Нацыянальная акадэмія навук Беларусі
Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ

Больш за 65 000 слоў

Пад рэдакцыяй кандыдата філалагічных навук
І.Л. Капылова

Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2016

УДК 811.161.3'374.3
ББК 81.2Беи-4
Т49

Укладальнікі: *І.Л. Капылоў* (Прадмова), *М.Н. Крыўко* (В, З, О, П, Рачыны – Рэяць, У, Ш, Ю, Я, раздзел «Звесткі для карыстальнікаў Слоўнікам»), *А.М. Лапцёнак* (Б, Г, Д, М, Т, Ф, Х), *Т.М. Маракуліна* (Е, Ё, Ж, К, Н, Р – Рачулка, Ц,Ч, Прадмова), *Н.А. Снігірова* (А, І, Л, С, Э).

Рэцэнзент: кандыдат філалагічных навук *І.У. Будзько*

Выдаецца па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Т49 **Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы** : больш за 65 000 слоў / уклад. : І.Л. Капылоў [і інш.] ; пад рэд. І.Л. Капылова. — Мінск : Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2016. — 968 с.

ISBN 978-985-11-0937-7.

Аднатомны «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» змяшчае больш за 65 тысяч слоў. У слоўнікавым артыкуле даюцца кароткія тлумачэнні значэнняў слова, прыклады яго ўжывання ў мове, тэрміналагічныя і фразеалагічныя спалучэнні. Прыводзяцца асноўныя граматычныя значэнні слова, стылістычныя паметы, якія ўказваюць на сферу яго ўжывання, даюцца вытворныя словы, адзначаецца націск. Шырока выкарыстоўваюцца ў Слоўніку ў якасці ілюстрацый афарызмы, прыказкі, прымаўкі. У пачатку Слоўніка змешчаны неабходныя ўступныя часткі.

Прызначаны як для спецыялістаў-мовазнаўцаў, так і для шырокага кола карыстальнікаў.

**УДК 811.161.3'374.3**
**ББК 81.2Беи-4**

**ISBN 978-985-11-0937-7**

# ПРАДМОВА

«Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» быў падрыхтаваны калектывам лексікографаў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі пад навуковай рэдакцыяй члена-карэспандэнта НАН Беларусі М.Р. Судніка і вядучага навуковага супрацоўніка М.Н. Крыўко ў 1990-я гады. Неабходнасць стварэння такога лексікаграфічнага даведніка ў той час была абумоўлена ў першую чаргу тым, што беларуская мова набыла статус дзяржаўнай і стала шырока выкарыстоўвацца ва ўсіх сферах жыцця грамадства. Адпаведна наспела патрэба ў кампактным нарматыўным даведніку, які б максімальна поўна адлюстроўваў лексічны стан беларускай літаратурнай мовы і быў зручны ў выкарыстанні.

Аднатомны «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» стварыўся на базе «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (ТСБМ) у 5 тамах — 6 кнігах (Мінск, 1977—1984). Аднак ён істотна адрозніваецца ад свайго папярэдніка: колькасцю растлумачаных слоў, структурай слоўнікавага артыкула, сістэмай падачы лексічнага матэрыялу і ілюстрацый да значэнняў слоў.

«Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» чатыры разы перавыдаваўся без істотных змен. Апошняе выданне Слоўніка выходзіла ў 2005 годзе. У ім растлумачана прыкладна 65 тысяч слоў, якія адлюстроўваюць асноўнае лексічнае багацце літаратурнай мовы беларускага народа 1980—1990-х гадоў.

Новае выданне Слоўніка працягвае і развівае традыцыі айчыннай лексікаграфіі. Як і папярэднія выданні, новы аднатомны тлумачальны слоўнік кампактны і зручны для карыстання. З мэтай скарачэння яго аб'ёму і ў той жа час захавання магчымасці ўключыць неабходныя словы, што ўжываюцца ў беларускай літаратурнай мове, некаторыя разрады лексікі змяшчаюцца ў гняздзе асноўнага слова (больш падрабязна пра састаў і структуру Слоўніка гл. ў раздзеле «Звесткі для карыстальнікаў Слоўнікам»). У прапанаваным Слоўніку аўтары і рэдактары пастараліся па магчымасці поўна сістэматызаваць падачу вытворных слоў у гнёздах.

У рэестр аднатомнага тлумачальнага Слоўніка не ўвайшлі многія аддзеяслоўныя назоўнікі, усе зваротныя дзеясловы залежнага стану, шматлікія прыставачныя дзеясловы (асабліва калі распрацаваны і пададзены ў рэестры самі прыстаўкі як часткі слоў, пры дапамозе якіх утвараюцца іншыя дзеясловы), многія спецыяльныя і вузкаспецыяльныя тэрміны, рэдкаўжывальныя, устарэлыя і абласныя словы і інш.

За апошнія дзесяцігоддзі ў сувязі са зменамі ў палітычным, эканамічным і культурным жыцці краіны слоўнікавы склад беларускай мовы значна папоўніўся новымі словамі, якія пакуль што не былі зафіксаваны ў «Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы» і прафесійна ацэнены. Таму новае выданне Слоўніка арыентавана на адлюстраванне сучаснага стану лексікі і фразеалогіі беларускай літаратурнай мовы і адпаведна тых працэсаў, якія дэманструюць дынаміку развіцця сучаснага беларускага лексікону: вяртанне значнай колькасці лексічных адзінак, якія яшчэ нядаўна знаходзіліся на перыферыі лексічнай сістэмы, з'яўленне шматлікіх запазычанняў, галоўным чынам англаамерыканізмаў, абумоўленае працэсамі сусветнай глабалізацыі ў розных сферах жыцця беларускага грамадства.

У сувязі з гэтым была папоўнена лексікаграфічная база і адпаведна абноўлены рэестр Слоўніка за кошт увядзення новых, актуальных для сучаснай беларускай мовы слоў і частак складаных слоў: *аповед, безнаяўны, гала-..., гастарбайтар, гендар, геном, гіпермаркет, гламур, гулец, дамафон, дамен, дамова, дрэс-код, дыскаўнтар, дэвайс, інтэрнэт, камерцыялізацыя, камп'ютарызаваць, канвертацыя, карупцыянер, карыстальнік, кланіраваць, клон, мадэм, майстар-клас, маркер, медыя, мікрахвалёўка, напой, сайт, самнамбул, слэнг, снегавік, субкультура, суразмовец, трэнд, тэндар*[2]*, фаст-фуд, фітнес, флікер, фрыстайл, хай-тэк, харызма, хіт, хмарачос, холдынг, хоспіс, хуткапрамаўлянка* і інш.; уведзены новыя, а таксама шырокаўжывальныя, актуальныя тэрміналагічныя і фразеалагічныя выразы: *абсалютны нуль, агульная мова, асадзі назад, банкаўская плацежная картка, двайная бухгалтэрыя, мера стрымання, сіліконавая даліна, ствалавыя клеткі, суб'ект права* і інш.

Унесены прынцыповыя ўдакладненні і дапаўненні ў значэнні некаторых слоў і тэрміналагічных адзінак, а некаторыя слоўнікавыя артыкулы цалкам перапрацаваны, што абумоўлена сацыяльна-палітычнымі, эканамічнымі, культурна-адукацыйнымі зменамі ў жыцці грамадства за час перавыдання Слоўніка: *Евангелле, кааператыў, казіно, камп'ютар, камунізм, капіталізм, касмапалітызм, крыж, крэдыт, ксеракопія, ксеракс, ксёндз, культуралогія, наасфера, наркаманія, ноу-хау, радыкалізм, сектанцтва, скрыжаль, спадар, спадарства, спонсар, стаіцызм, стыляга, тапаніміка, тапанімія, царква* і інш.

У Слоўніку адлюстраваны некаторыя новыя, актуальныя ў сучаснай беларускай мове значэнні слоў, якія да гэтага часу не адзначаліся ў аднатомным тлумачальным слоўніку. Напрыклад, значэнні слоў *галерэя, генерал-губернатар, гурт, дзелавы, дыск, ікра, індыга, карпаратыў, клавіятура, круіз, крышталь, мабільны, меланхолік, метадыст, металіст, навігатар, недабраякасны, нерухомасць, радыяцыя, ракіроўка, ратацыя, сафары, слабада, спарыш*[2]*, стаўка, тэрмінал, файл, факс, фігурант, цэпелін* і інш.

Асобныя лексічныя адзінкі, зафіксаваныя ў папярэдніх выданнях Слоўніка, у новым выданні заменены беларускімі адпаведнікамі: *агаломшыць* замест *агарошыць*, *горна-абагачальны* замест *горна-ўзбагачальны*, *Дабравешчанне* і *Дабравесце* замест *Благавешчанне*, *снягурка* замест *снягурачка*, *суразмовец* замест *субяседнік* і інш.

У рэестр Слоўніка не ўключаны словы, якія на сённяшні дзень не адносяцца да актыўнай лексікі (напрыклад, абласныя, малаўжывальныя ў літаратурнай мове), выходзяць за межы літаратурнай мовы або кваліфікуюцца як русізмы: *аброжак, аджгір, адсябяціна, адухатварыць, гавядзіна, істопка, клады, самадзелка, самадзельны, самаўніжэнне* і інш.

Прапанаваны ўвазе карыстальнікаў Слоўнік дае не толькі тлумачэнне слоў, ён з'яўляецца нарматыўным даведнікам па арфаграфіі, націску, словазмяненні, словаспалучэнні, па граматычнай характарыстыцы.

У 2008 годзе быў прыняты Закон Рэспублікі Беларусь «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», які ўступіў у сілу з 1 верасня 2010 года. Адпаведна ў Слоўнік унесены змены ў напісанне слоў паводле новай рэдакцыі правіл беларускай арфаграфіі. У прыватнасці, адлюстраваны такія арфаграфічныя наваўвядзенні, як *аблвыканкам, адажыа, альма-матар, анчоус, аўтсайдар, васьмідзясяты, выканкам, дэзынфекцыя, ёгурт, іаркшыры, іўдзеі, камп'ютар, лакаўт, лідар, лідарства, лінкар, менеджар, ордар, сальфеджыа, спрынтар, стагадовы, стартар, суаўтар, супермен, сэтар, фаўна* і многія інш.

Удакладнена граматычная характарыстыка некаторых слоў: аднастайна пададзены лічэбнікі і канчаткі назоўнікаў агульнага роду, пададзены варыянты канчаткаў назоўнікаў роднага склону множнага ліку, уведзена значная колькасць дзеясловаў без суфікса *-іраваць* (*дэмантаваць, мадэляваць, міграваць, санкцыянаваць* і інш.).

У Слоўніку зафіксаваны змены ў стылістычнай кваліфікацыі некаторых слоў: напрыклад, пераход слоў з паметай *кніжн.* ў разрад агульнаўжывальнай лексікі. У Слоўніку павялічана колькасць слоў з паметай *гіст.*

У значнай ступені быў абноўлены ілюстрацыйны матэрыял Слоўніка, уключаны новыя, найбольш актуальныя прыклады, якія адлюстроўваюць сучасныя рэаліі і сучаснае словаўжыванне: шырока ўведзены назвы беларускіх населеных пунктаў, імёны і прозвішчы славутых дзеячаў беларускай культуры і літаратуры. У Слоўніку заменены або выдалены прыклады, якія адлюстроўваюць рэаліі савецкай эпохі, так званыя саветызмы: *шлях да камунізму, шырыць сацыялістычнае спаборніцтва, у эксплуатацыі сутнасць капіталізму, эканоміка сацыялізму* і інш.

Пры падрыхтоўцы 1-га выдання Слоўніка аўтарамі быў скарыстаны вопыт стварэння аднатомнага «Словаря русского языка» С.І. Ожагава (18-е выд., М., 1986, і 23-е выд., выпраўленае, М., 1990), навуковае рэдагаванне якога ажыццяўляла член-карэспандэнт АН СССР Н.Ю. Шведава. У нязначнай ступені быў выкарыстаны «Толковый словарь русского языка» С.І. Ожагава і Н.Ю. Шведавай (3-е выд., М., 1995).

Крыніцамі новага выдання аднатомнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы» паслужылі: фундаментальная картатэка аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якая налічвае 3 мільёны картак-слоў, «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 1—5, Мінск, 1977—1984), «Слоўнік беларускай мовы» пад рэдакцыяй члена-карэспандэнта НАН Беларусі А.А. Лукашанца і доктара філалагічных навук В.П. Русак (Мінск, 2012), «Беларуска-рускі слоўнік=Белорусско-русский словарь» пад рэдакцыяй члена-карэспандэнта НАН Беларусі А.А. Лукашанца (т. 1—3, 4-е выд., перапрацаванае і дапоўненае, Мінск, 2012). Пры падрыхтоўцы новага выдання даведніка былі выкарыстаны тэксталагічныя матэрыялы Беларускага N-корпуса (bnkorpus.info).

Аўтарамі 1—4-га выданняў Слоўніка з'яўляліся І.М. Бунчук (А, Раб — Разгледзець), М.Н. Крыўко (В, З, О, П, Рачыны — Рэяць, У, Ш, Ю, Я, Прадмова, раздзел «Звесткі для карыстальнікаў слоўнікам»), З.М. Кудрэйка (Б, І, Й, Л, М, Н, Разгневаны — Распрануць), Н.М. Лявончык (Г, Е, Ё, Ж, К, Распрапагандаваць — Рассяліць, С, Ф, Э), Г.М. Прышчэпчык (Рассячы — Рачулка, Т, Х, Ц, Ч), М.Р. Суднік (Д). Выданні Слоўніка выходзілі пад рэдакцыяй члена-карэспандэнта НАН Беларусі М.Р. Судніка і вядучага навуковага супрацоўніка М.Н. Крыўко.

Над новым выданнем Слоўніка працавалі І.Л. Капылоў (Прадмова), М.Н. Крыўко (В, З, О, П, Рачыны—Рэяць, У, Ш, Ю, Я, раздзел «Звесткі для карыстальнікаў Слоўнікам»), А.М. Лапцёнак (Б, Г, Д, М, Т, Ф, Х), Т.М. Маракуліна (Е, Ё, Ж, К, Н, Р — Рачулка, Ц,Ч, Прадмова), Н.А. Снігірова (А, І, Л, С, Э).

Выданне падрыхтавана пад навуковай рэдакцыяй дырэктара Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, кандыдата філалагічных навук, дацэнта І.Л. Капылова.

Аўтары і ўкладальнікі аднатомнага «Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы» шчыра ўдзячныя галоўнаму рэдактару выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Л.У. Языковіч за арганізацыю новага выдання Слоўніка, рэдакцыі навуковага і літаратурнага кантролю гэтага выдавецтва ў складзе загадчыка рэдакцыі Г.М. Малей, вядучых навуковых рэдактараў Т.У. Люковіч, С.М. Несцярэнка, А.І. Саламевіча, В.М. Чудаковай за каштоўныя парады і заўвагі пры падрыхтоўцы Слоўніка да друку.

Заўвагі і пажаданні па Слоўніку просьба прысылаць на адрас: 220072, г. Мінск, вул. Сурганава, д. 1, корп. 2, Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі або на электронны адрас inlinasbel@tut.by.

Файл для тых, хто захоча распазнаць слоўнік: https://drive.google.com/file/d/1oVmawjXIuzeJI9vMnrHnzBqqVO9hL6oH/view?usp=sharing (пароль book345)
Для таго, каб хутка знайсці слова:
1. Цiснем на закладку з патрэбнай лiтарай.
2. Цiснем камбiнацыю клавiш на клавiятуры Ctrl+F.
3. Уводзiм першыя лiтары слова (прашыты чарнавы слой) i цiснем на кнопку Пошук.

# ЗВЕСТКІ ДЛЯ КАРЫСТАЛЬНІКАЎ СЛОЎНІКАМ

## Састаў слоўніка

§ 1. Аднатомны «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (далей Слоўнік) з'яўляецца даведачнай крыніцай пры вызначэнні семантыкі і значэнняў слоў, кіраўніцтвам для правільнага ўжывання слоў, утварэння форм і правільнага напісання слоў сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Зразумела, што аднатомны Слоўнік не можа адлюстраваць усёй разнастайнасці слоўнікавага складу сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Таму пэўныя катэгорыі слоў у Слоўнік не ўключаюцца.

§ 2. У адпаведнасці з задачамі Слоўніка ў ім, як правіла, не падаюцца:

1) спецыяльныя словы і значэнні, што з'яўляюцца вузкапрафесійнымі тэрмінамі асобнай галіны навукі і тэхнікі, якія неабходны толькі для вузкага кола прадстаўнікоў той ці іншай спецыяльнасці; выключэнне складаюць тыя выпадкі, калі вузкаспецыяльны тэрмін у сваім значэнні цесна звязаны з іншымі значэннямі гэтага слова і дапамагае зразумець яго сэнсавую будову ў цэлым; у некаторых выпадках у Слоўнік уключаецца спецыяльнае слова тады, калі яно з'яўляецца амонімам у адносінах да агульналітаратурнага слова і проціпастаўляецца яму з мэтай пазбегнуць няправільнага разумення тэрміна;

2) дыялектныя словы і значэнні слоў, калі яны не выкарыстоўваюцца шырока ў мове мастацкай літаратуры і не набылі яшчэ статуса літаратурнага слова або значэння слова;

3) словы і значэнні слоў з ярка выражанай афарбоўкай грубасці;

4) устарэлыя словы і значэнні слоў, не запатрабаваныя ў сучаснай моўнай практыцы, а таксама рэдка ўжывальныя і практычна непатрэбныя з пункту погляду сучасных моўных зносін, разумення недалёкай гістарычнай рэчаіснасці або тэкстаў мастацкай літаратуры мінулых часоў;

5) розныя катэгорыі ўласных імён — асабовыя імёны людзей, геаграфічныя назвы, назвы ўстаноў і г.д.; выключэнне складаюць уласныя імёны, што ўваходзяць ва ўстойлівыя спалучэнні як абавязковы кампанент, а таксама назвы асоб, звязаных з рэлігіяй, назвы свят і пад., правапіс якіх змяніўся ў выніку прыняцця Закона «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі».

§ 3. З мэтай скарачэння аб'ёму Слоўніка і ў той жа час захавання магчымасці ўключыць неабходныя, ужывальныя ў літаратурнай мове словы, некаторыя разрады лексікі змяшчаюцца з асноўным словам у яго гняздзе. Падставай для змяшчэння ў гняздзе служыць не толькі агульнасць паходжання слоў, не толькі прыналежнасць іх да аднаго кораня, а перш за ўсё іх бліжэйшыя словаўтваральныя сувязі ў сістэме сучаснай літаратурнай мовы. Да такіх слоў адносяцца тыя, у якіх новы сэнс ствараецца толькі ў сувязі з прыналежнасцю вытворнага слова да іншай граматычнай катэгорыі ў параўнанні з базавым словам:

1) назоўнікі з агульным значэннем адцягненасці на *-асць, -ізна*, утвораныя ад прыметнікаў з такім значэннем, напр.: **эфеме́рнасць** пры **ЭФЕМЕ́РНЫ**, **балбатлі́васць** пры **БАЛБАТЛІ́ВЫ**, **крывізна́** пры **КРЫВЫ́**, **кру́тасць** і **круцізна́** пры **КРУТЫ́**[1];

2) назоўнікі, утвораныя ад дзеясловаў з нулявым суфіксам і на *-нне, -цце, -ка*, якія абазначаюць дзеянні, напр.: **мале́нне** пры **МАЛІ́ЦЬ**, **ты́канне** пры **ТЫ́КАЦЬ**, **тынко́ўка** і **тынкава́нне** пры **ТЫНКАВА́ЦЬ**, **падня́цце**, **паднiма́нне** і **пад'ём** пры **ПАДНЯ́ЦЬ**;

3) назоўнікі памяншальныя, ласкальныя, зніжальныя з рознымі суфіксамі, утвораныя ад назоўнікаў, напр.: **паду́шачка** пры **ПАДУ́ШКА**, **до́мік** і **дамо́к** пры **ДОМ**, **ша́пачка** і **шапчы́на** пры **ША́ПКА**;

4) назвы асоб жаночага полу, утвораныя ад адпаведнай назвы па прафесіі, занятку, дзейнасці, грамадскім і сацыяльным становішчы і пад. асоб мужчынскага полу, напр.: **кранаўшчы́ца** пры **КРАНАЎШЧЫ́К**, **манта́жніца** пры **МАНТА́ЖНІК**, **выкла́дчыца** пры **ВЫКЛА́ДЧЫК**;

5) адносныя прыметнікі, якія ўтвораны ад назоўнікаў і дзеясловаў і абазначаюць рознага роду адносіны да прадмета, дзеяння або ўласцівасці і якасці, што вынікаюць з адносін да прадмета, дзеяння, напр.: **шко́льны** пры **ШКО́ЛА**, **я́блычны** пры **Я́БЛЫК**, **каўпа́чны** і **каўпако́вы** пры **КАЎПА́К**, **прамыва́льны**, **прамыўны́**, **прамы́вачны** і **прамы́йны** пры **ПРАМЫ́ЦЬ**;

6) парадкавыя лічэбнікі, утвораныя ад колькасных, напр.: **сё́мы** пры **СЕМ**, **пяцідзясяты** пры **ПЯЦЬДЗЯСЯ́Т**;

7) парныя віды дзеяслова (а таксама адна- і мнагакратныя дзеясловы) пры адсутнасці паміж імі якіх-небудзь сэнсавых адрозненняў, акрамя адрознення ў значэнні закончанасці—незакончанасці дзеяння, напр.: *незак*, **выко́пваць** пры *зак*. **ВЫ́КАПАЦЬ**, *зак*. **зрабі́ць** пры *незак*. **РАБІ́ЦЬ**, *аднакр*. **во́йкнуць** пры *незак*. **ВО́ЙКАЦЬ**;

8) уласна-зваротны стан дзеясловаў, г.зн. які мае значэнне пераходу на таго, хто ўтварае дзеянне, напр., *звар*. **галі́цца** (г.зн. галіць сябе) пры **ГАЛІ́ЦЬ**.

§ 4. Калі словы, змешчаныя ў гняздзе, маюць іншыя, уласныя значэнні, якія не вынікаюць непасрэдна, а толькі са словаўтваральных сувязей з базавым словам, то такія словы падаюцца з тлумачэннямі як загалоўныя, са спасылкай на наяўнасць таго ж слова ў гняздзе. Напр., слова **го́нка**, акрамя значэння адцягненага дзеяння паводле значэння дзеяслова **гнаць**, мае яшчэ сваё ўласнае значэнне «спаборніцтва ў хуткасці (на аўтамабілях, лыжах і пад.)», таму яно даецца і асобна як загалоўнае: **ГО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж*. **1.** *гл*. гнаць. **2.** звычайна *мн*. (**го́нкі**, -нак). Спаборніцтва ў хуткасці (на аўтамабілях, лыжах і пад.). *Аўтамабільныя гонкі.*

§ 5. Некаторыя граматычныя разрады слоў, калі яны належаць да лёгка ўтваральных вытворных слоў, звычайна не падаюцца ў Слоўніку. Да іх адносяцца:

1) многія назвы дзейнай асобы ад дзеясловаў і прыметнікаў на *-льнік, -тар, -ец* і некаторыя інш.;

2) значная частка прыметнікаў на *-аў, -оў, -ын*, напр.: *бра́таў, камаро́ў, вавё́рчын*;

3) многія прыметнікі са значэннем аслабленай якасці на *-аваты, -яваты*, напр.: *слабава́ты, цеплава́ты, сіня́ваты;*

4) шматлікія памяншальныя прыметнікі тыпу *блакі́тненькі, хало́дненькі, малюпа́сенькі;*

5) складаныя і прыставачныя словы, калі іх значэнне цалкам вынікае з іх марфемнага складу, напр.: *мя́са-мало́чны, суапяку́н, дала́таць* (скончыць латаць), *нехало́дны* і пад. У сувязі з гэтым для даведак у Слоўніку як загалоўныя словы падаюцца прадуктыўныя ў літаратурнай мове першыя часткі складаных слоў і прыстаўкі з тлумачэннем іх значэнняў, напр.: **АЭРА...**, **МОТА...**, **ЭЛЕКТРА...**, **ДА...**, **ЗА...**, **НЕ...** і пад.;

6) многія дзеясловы незакончанага трывання з суфіксамі *-ава, -оўва*, утвораныя ад прыставачных дзеясловаў закончанага трывання, калі гэты прыставачны дзеяслоў супадае па лексічным значэнні з беспрыставачным дзеясловам незакончанага трывання, напр., *зброшуро́ўваць* пры наяўнасці *незак*. **БРАШУРАВА́ЦЬ** і *зак*. **ЗБРАШУРАВА́ЦЬ**;

7) зваротныя дзеясловы залежнага стану, напр.: *абмалё́ўвацца, абмуро́ўвацца, лаві́цца, нараза́цца, парадзі́равацца, прыве́швацца, прыво́дзіцца, саджа́цца, уво́дзіцца, упако́ўвацца* і пад.

§ 6. Пры кожным загалоўным і вытворным слове даюцца яго формы; больш падрабязна пра гэта гл. ў §§ 20—34, прысвечаных асобным часцінам мовы.

### Спасылачныя словы

§ 7. Каб аблегчыць пошук слова, якое знаходзіцца ў гняздзе, у агульны алфавіт уведзены так званыя спасылачныя словы — словы з гнязда са спасылкай на тое загалоўнае слова, у гняздзе якога знаходзіцца дадзенае вытворнае.

Спасылкі даюцца ў наступных выпадках:

1) калі словы пачынаюцца з розных літар, напр.: **АДЫ́ГЧНЫ** *гл.* ода; **АМІ́ЧНЫ** *гл.* ом; **НАБАЛЬЗАМАВА́ЦЬ** *гл.* бальзамаваць;

2) калі словы пачынаюцца на адну і тую ж літару, спасылкі даюцца:

а) пры нерэгулярных, рэдкіх ці адразу некалькіх марфалагічных або фанетычных чаргаваннях, якія адрозніваюць пачатак слоў; такія словы, як правіла, знаходзяцца на далёкім паводле алфавіта месцы ад сваіх утваральных, напр., **ВО́ДНЫ** *гл.* вада. Могуць быць выпадкі, калі адно вытворнае слова адразу спасылаецца на некалькі базавых слоў, напр.: **РАЗМЕ́Н** *гл.* размяніць, размяняцца, размяняць; **ЖАРДЗЯНЫ́** *гл.* жардзіна, жэрдка;

б) калі ў спасылачным слове, акрамя словаўтваральнага, ёсць іншае значэнне (або значэнні); у дадзеным выпадку спасылачным з'яўляецца не слова, а толькі яго першае значэнне, а іншыя значэнні падаюцца самастойна пасля першага спасылачнага. Напрыклад, вытворны назоўнік **шалёўка** як назва дзеяння паводле дзеяслова **шалява́ць** стаіць у гняздзе гэтага дзеяслова, але, акрамя гэтага, слова мае яшчэ тры сваіх значэнні, г.зн. слова **шалёўка** даецца як загалоўнае, тлумачэнні значэнняў даюцца пад лічбамі **2**, **3**, **4**, а за лічбай **1** даецца спасылачны назоўнік: **ШАЛЁЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** *гл.* шаляваць. **2.** *зб.* Тонкія дошкі, якія ідуць на абшыўку драўляных пабудоў, а таксама абшыўка з такіх дошак. **3.** *мн.* -і, -лёвак. Адна з такіх дошак. **4.** Накладныя планкі вакол акна, дзвярэй;

в) у выпадках, калі вытворнае слова мае паказаны ў слоўніку амонім, напр.: **ЗАБО́Й**[2] *гл.* забіць[1]; **КАНЁК**[2] *гл.* канькі.

### Тлумачэнне значэння слова

§ 8. У Слоўніку значэнне слова раскрываецца ў кароткай дэфініцыі, дастатковай для разумення самога слова і яго ўжывання.

Аб'ём аднатомнага Слоўніка не дазваляе ў поўнай меры і колькасці падаваць у ім абсалютна ўсе значэнні слова і асабліва адценні значэнняў, якія ёсць у літаратурнай мове і як гэта пададзена ў пяцітомным ТСБМ. У дадзеным Слоўніку кароткія азначэнні для слоў з адным ці некалькімі значэннямі ахопліваюць, як правіла, толькі тыя значэнні (у іх ліку і пераносныя), што ўсталяваліся ў літаратурнай мове і ўласцівы сучаснаму агульнаму ўжыванню. У Слоўніку многія значэнні слова і адценні значэнняў аб'ядноўваюцца ў адно значэнне дзякуючы больш шырокаму тлумачэнню, азначэнню.

Асобныя значэнні ў шматзначных словах раздзяляюцца арабскімі лічбамі, а адценні ў значэнні, калі яны ёсць, кропкай з коскай (;).

§ 9. У словах, аднолькавых або блізкіх па значэнні, асноўнае тлумачэнне даецца звычайна пры найбольш ужывальным слове ў мове ці пры найбольш істотным слове ў тых або іншых адносінах сярод блізкіх па сэнсе слоў. У астатніх словах такога рада, калі няма дадатковых адценняў, замест тлумачэння даецца толькі тое слова, пры якім маецца тлумачэнне, з указаннем «тое, што і ...»: **КАНФЕ́СІЯ**... Тое, што і *веравызнанне*.

Калі такія словы адрозніваюцца стылістычна, колам сваіх ужыванняў, то гэта адзначаецца асобнай паметай (гл. пра гэта яшчэ і § 11), напр.: **ВЯЛІ́КАСЦЬ** ... **1.** Тое, што і *веліч* (у 2 знач.); **ГРЫ́ФЕЛЬ** ... **2.** Тое, што і *графіт* (у 2 знач.); **КА́ЗАНЬ** ... Тое, што і *казанне* (у 2 знач.).

Словы, якія маюць аднолькавае значэнне і з'яўляюцца словаўтваральнымі, фанетычнымі, акцэнталагічнымі, фанетыка-акцэнталагічнымі, марфалагічнымі варыянтамі, прыводзяцца побач праз злучнік «і» і маюць агульнае азначэнне, напр.: **ШТУРХАНЕ́Ц**, -нца́, *мн.* -нцы́, -нцо́ў, *м.* *і* **ШТУРХА́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.;* **АГЛАБІ́ЛЬНА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* *і* **АГЛАБІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -бі́н, *ж.;* **ЗУБРАНЯ́** *і* **ЗУБРАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.;* **ВЯСНО́Й** *і* **ВЯСНО́Ю**, *прысл.;* **ГАЙДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ГО́ЙДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.;* **СУ́ПРАЦЬ** *і* **СУПРО́ЦЬ**, *прысл.* і *прыназ.* Словы, якія маюць розныя значэнні, але супадаюць арфаграфічна і арфаэпічна і з'яўляюцца амонімамі, падаюцца асобна як загалоўныя словы з лічбавымі паказчыкамі ўверсе справа, напр.: **ЖАХ**[1] і **ЖАХ**[2], **КЛУБ**[1], **КЛУБ**[2] і **КЛУБ**[3].

§ 10. Тлумачэнні слоў даюцца па магчымасці коратка, у разліку на тое, што словы, якія ўваходзяць у тлумачэнне, растлумачаны на сваім месцы і могуць быць лёгка знойдзены; напр., у слове **ЗААТЭ́ХНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па заатэхніі — значэнне слова «заатэхнія» не раскрываецца, бо яго можна знайсці пад загалоўным словам **ЗААТЭ́ХНІЯ**. Калі тлумачэнне слова даецца праз мнагазначнае слова, то пасля гэтага слова ў дужках ідзе ўказанне, якое са значэнняў мнагазначнага слова маецца на ўвазе, напр., **ЭСТЭ́Т**... Прыхільнік эстэтызму (у 1 знач.).

Аналагічна, калі вытворнае слова ў гняздзе адносіцца не да ўсіх значэнняў мнагазначнага слова, пасля вытворнага слова даецца ў дужках указанне, да якога значэння мнагазначнага загалоўнага слова яно адносіцца, напр., **ЭНЕ́РГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Адна з асноўных уласцівасцей матэрыі — мера яе руху, а таксама здольнасць выконваць работу. **2.** Рашучасць і настойлівасць у рабоце, дзеяннях. ‖ *прым.* **энергеты́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

### Характарыстыка ўжывання слова

§ 11. Значная частка слоў стылістычна нейтральная, г.зн. можа ўжывацца ў любых відах вуснай і пісьмовай мовы, не надаючы ёй ніякіх стылістычных адценняў. Але ў літаратурнай мове ёсць шмат лексікі, што адносіцца да розных стыляў, з'яўляецца рознай па характары і сферы свайго ўжывання. Таму пры словах, што маюць патрэбу ў той або іншай характарыстыцы ў гэтых адносінах, даюцца асаблівыя паметы. Яны ставяцца ў дужках перад тлумачэннем значэння, калі слова мае адно значэнне або калі памета адносіцца да ўсіх значэнняў мнагазначнага слова. Калі ж памета адносіцца да аднаго ці толькі да некаторых значэнняў мнагазначнага слова, то яна ставіцца пасля тлумачэння ў дужках, напр., **ДЗЯЎБЦІ́** ... **4.** *перан.* Бесперапынна паўтараць адно і тое ж (разм.).

Калі пры вытворных словах у гняздзе няма сваіх памет, то гэта азначае, што яны па характары ўжывання аднолькавыя з асноўным словам.

Патрэбныя паметы даюцца і пры ілюстрацыйных прыкладах, і пры ўстойлівых словазлучэннях.

Бываюць выпадкі, калі ў дужках стаяць дзве паметы, гэта азначае, што ў слове (ці значэнні) спалучаюцца розныя стылістычныя характарыстыкі, якія дапаўняюць адна адну, напр. (разм., груб.) — размоўнае з грубым адценнем. Калі ж дзве паметы спалучаны злучнікам «і», напр. (уст. *і* іран.), гэта азначае, што ў адных кантэкстах слова ўжываецца як устарэлае, у другіх яно можа надаваць мове адценне іроніі.

§ 12. Паметы, якія ўказваюць на стылістычную характарыстыку слова:

(кніжн.), г.зн. кніжнае; азначае, што слова характэрна для кніжнага, пісьмовага выкладу; нярэдка гэтыя словы, пераважна іншамоўныя па паходжанні, з'яўляюцца сінонімамі да слоў нейтральных;

(высок.), г.зн. высокае; азначае, што слова надае мове адценне ўрачыстасці, прыўзнятасці; уласціва публіцыстычнай, аратарскай і паэтычнай мове;

(нар.-паэт.), г.зн. народнапаэтычнае; азначае, што слова захоўвае сваю вусна-паэтычную афарбоўку і, нягледзячы на тое

што яно ўжываецца ў літаратурнай мове (звычайна паэтычнай), яно не зліваецца з літаратурнай лексікай цалкам (часта такія словы ўжываюцца як сродак стылізацыі);

(паэт.), г.зн. паэтычнае; азначае, што слова характэрна для ўрачыста-ўзнёслай паэзіі і прозы і блізкае па ўжывальнасці да слоў, забяспечаных у слоўніку паметай (высок.);

(афіц.), г.зн. афіцыйнае; азначае, што слова ўласціва мове афіцыйных зносін, а таксама канцылярска-адміністрацыйнай мове;

(разм.), г.зн. размоўнае; азначае, што слова ўласціва штодзённай, размоўнай мове, служыць характарыстыкай з'явы ў коле бытавых зносін; яно не выходзіць за нормы літаратурнага словаўжывання, але надае мове прастату;

(груб.), г.зн. грубае; (пагард.), г.зн. пагардлівае; (зневаж.), г.зн. зневажальнае; (неадабр.), г.зн. неадабральнае; (асудж.), г.зн. асуджальнае; (незадав.), г.зн. незадавальняльнае; (лаянк.), г.зн. лаянкавае; (іран.), г.зн. іранічнае; (жарт.), г.зн. жартаўлівае — гэтыя паметы азначаюць, што слова ўтрымлівае ў сабе адпаведную эмацыянальную, выразную ацэнку названай з'явы.

§ 13. Памета (спец.), г.зн. спецыяльнае; ёю абазначаецца прыналежнасць слова да пэўнага кола прафесійнага (тэхнічнага, навуковага і пад.) ужывання.

§ 14. Памета (уст.), г.зн. устарэлае; указвае, што слова з'яўляецца ўстарэлым, што яно выйшла з шырокага ўжытку, але яшчэ даволі добра вядомае ў сучаснай літаратурнай мове, а таксама па мастацкіх творах пачатку 20 ст. Памета (гіст.), г.зн. гістарычнае; указвае, што слова ўжываецца ў літаратуры, якая мае дачыненне да фактаў гісторыі, хоць сама рэалія — з'ява мінулых эпох.

§ 15. Сфера ўжывання, якая адначасова служыць і ўдакладненню значэння слова, вызначаецца таксама змяшчэннем перад тлумачэннем рознага роду паясненняў, напр.: у фізіцы, у фальклоры, у народных павер'ях і пад.

## Прыклады, тэрміналогія і фразеалогія

§ 16. Пасля тлумачэння значэння слова ў некаторых выпадках даюцца прыклады, якія ілюструюць яго ўжыванне ў мове; яны дапамагаюць больш дакладна зразумець значэнне слова і спосабы яго ўжывання. У якасці прыкладаў даюцца кароткія фразы, найбольш ужывальныя спалучэнні слоў, а таксама прыказкі, прымаўкі, іншыя народныя выслоўі, вобразныя выразы. У Слоўніку прыводзяцца найбольш тыповыя словаспалучэнні, якія ілюструюць сінтаксічныя сувязі слова, паказваюць ужыванне дадзенага слова з тымі або іншымі дапаўненнямі, азначэннямі, прыназоўнікамі і г.д. Калі слова ў ілюстрацыі супадае з зыходнай формай загалоўнага слова (напр., калі гэта назоўнік — у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду, калі дзеяслоў — у інфінітыве і пад.), то яно даецца скарочана — адной першай літарай з кропкай.

§ 17. У Слоўніку размяжоўваюцца тэрміналагічныя і фразеалагічныя спалучэнні. Тэрміналагічныя спалучэнні змяшчаюцца пасля семантычнай характарыстыкі слова і прыкладаў за знакам О (кружок) з тлумачэннем, напр., **САД** ... О **Дзіцячы сад** — выхаваўчая ўстанова для дзяцей дашкольнага ўзросту. У тых выпадках, калі ў слове маюцца і тэрміналагічныя, і фразеалагічныя спалучэнні, першымі падаюцца тэрміналагічныя спалучэнні.

Фразеалагічныя спалучэнні (інакш — фразеалагізмы) таксама, як і тэрміналагічныя, падаюцца пасля тлумачэння значэнняў і ілюстрацыйных прыкладаў (а таксама, магчыма, і пасля вытворных слоў у гняздзе) за знакам ◊ (ромб). Яны суправаджаюцца тлумачэннем, а калі патрэбна, і стылістычнымі паметамі, напр.: **НАСТА́ВІЦЬ**... ◊ **Наставіць на розум** — даць разумную параду; навучыць чаму-н. добраму; **СВЕТ** ... ◊ **У белы свет як у капейку** (разм.) — без мэты, не ведаючы куды (ісці, ехаць і пад.).

Калі якое-н. слова ў літаратурнай мове сустракаецца толькі ва ўстойлівым або тэрміналагічным выразе і незалежна ад яго не ўжываецца, то значэнне такога слова не тлумачыцца. У гэтым выпадку слова даецца як загаловачнае (з прывядзеннем форм, калі яны ёсць), пасля яго ставіцца двукроп'е, прыводзіцца выраз, у якім знаходзіцца гэта слова, і даецца тлумачэнне гэтага выразу, напр.: **ЛЫ́НДЫ**. У выразе: **лынды біць** (разм.) — гультаяваць, бяздзейнічаць, займацца пустымі справамі; **СТЭ́РЛІНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У выразе: **фунт стэрлінгаў** — грашовая адзінка Вялікабрытаніі, роўная 100 пенсам.

## Націск

§ 18. Націск у Слоўніку абазначаецца штрыхом над галоснай, напр.: **КУ́РЫЦА, ВЫ́ПАДАК, е́герскі**.

У беларускай мове націск рухомы, не звязаны з канкрэтным складам у слове. У пераважных выпадках гэта датычыць асобовых форм дзеяслова, ускосных склонаў назоўнікаў, канчаткаў назоўнікаў, склонавых форм займеннікаў. Рухомасць націску ў слове паказваецца абавязкова, напр.: **ЗАВЯРШЫ́ЦЬ**, -вяршу́, -ве́ршыш, -ве́ршыць; -ве́ршаны; **ВОЎК**, ваўка́ *і* во́ўка, *мн.* ваўкі́, ваўко́ў; **ТВОЙ**, твайго́, *м.;* твая́, тваёй, *ж.;* твае́, твайго́, *н.; мн.* твае́, тваі́х.

Калі формы аднаго слова ў розных значэннях маюць неаднолькавы націск, то гэта ўказваецца пасля лічбы перад тлумачэннем, напр.: **ВЯЗ**... **1.** *мн.* вя́зы, -аў ... **2.** *мн.* вязы́, -о́ў; **ЗУБ**... **1.** *мн.* зу́бы *і (з ліч. 2, 3, 4)* зубы́, зубо́ў ... **2.** *мн.* зубы́, -о́ў.

У ілюстрацыйных прыкладах і фразеалагічных спалучэннях націск, як правіла, не даецца, калі словы, што ўваходзяць у іх, захоўваюць свой звычайны націск. Ён даецца толькі ў асаблівых выпадках, калі могуць узнікнуць цяжкасці.

Аднаскладовыя словы знакам націску не пазначаюцца. У складаных словах ставіцца адзін націск, напр.: **АБАРАНАЗДО́ЛЬНЫ, БУРАКАЎБО́РАЧНЫ**, бо ў першай частцы маецца толькі так званы пабочны націск.

У складаных словах, якія пішуцца праз дэфіс, могуць быць адзін ці два націскі, што ў кожным такім слоўнікавым артыкуле спецыяльна адзначаецца; пры гэтым першы націск заўсёды пабочны, другі — галоўны, напр.: **ХТО-НЕ́БУДЗЬ, чаго́-не́будзь**.

Літара *ё* паказвае адначасова і вымаўленне (*ё*, а не *е)*, і месца націску. Таму значок націску над *ё* не ставіцца, напр.: **ЁЛКА, ЛЁТЧЫК**. Толькі ў некаторых складаных словах, у якіх націск не на *ё*, значок ставіцца над націскной галоснай, напр.: **ЛЁНАЦЕРАБІ́ЛКА, ЦЁМНАВАЛО́СЫ**.

## Пра паходжанне слоў

§ 19. За час шматвяковых зносін з іншымі народамі беларуская літаратурная мова засвойвала словы іншамоўнага паходжання. Са старажытных часоў у сучаснай мове захаваліся словы галоўным чынам грэчаскага і цюркскага паходжання, з сярэдневяковага і пазнейшага часу — словы з польскай, літоўскай, лацінскай і іншых заходнееўрапейскіх моў. Наватворэнні (інакш — неалагізмы) апошніх дзесяцігоддзяў адносяцца пераважна да інтэрнацыянальнай лексікі.

У сучаснай беларускай літаратурнай мове ёсць шмат слоў, пераважна навуковых і тэхнічных тэрмінаў, не запазычаных, а ўтвораных на беларускай моўнай глебе з раней запазычаных слоў пры дапамозе суфіксаў або прыставак, напр., **МЕТРА́Ж**. Ёсць многа слоў, утвораных са спалучэнняў беларускіх і іншамоўных элементаў, напр.: **паланіза́цыя, ЛІСТА́Ж**; многія з падобных слоў цалкам запазычваліся беларускай мовай з рускай. Такім чынам, іншамоўныя словы і словы з іншамоўнымі элементамі разнастайныя паводле свайго паходжання.

Слоўнік не дае звестак пра паходжанне слоў, бо не ставіць перад сабой этымалагічных задач, а імкнецца толькі паказаць нормы сучаснага словаўжывання. Характар запазычаных беларускай мовай слоў розны. Адны з іх пранік лі ў шырокі народны ўжытак, замацаваліся ў мове і не маюць у ёй свайго адпаведнага беларускага слова. Другія ўласцівы толькі вузкім сферам ужывання, спецыяльнай тэрміналогіі, кніжнаму стылю і інш. Пры ўсіх такіх словах стаяць адпаведныя паметы ці спецыяльныя тлумачэнні, якія характарызуюць сферу іх ужывання.

Звесткі пра паходжанне слоў даюцца (пасля тлумачэння) толькі ў тых выпадках, калі яны памагаюць больш дакладна зразу-

мецъ значэнне слова, напр., **БУДЫ́ЗМ**... [па імені яе заснавальніка Буды].

### Граматычныя разрады слоў

§ 20. Прыналежнасць слова да таго або іншага граматычнага разраду (часціны мовы) абазначаецца ці непасрэдна паметамі *займ., ліч., прысл., часц., прыназ., выкл., пабочн. сл.* (гл. спіс умоўных скарачэнняў), ці непасрэдна ўказаннем яго форм (словазмянення). Так, прыналежнасць слова да дзеясловаў бачная з указання на формы змянення і з указання трывання *(зак., незак.)*, да прыметнікаў — з родавых канчаткаў. Словы тыпу **«ШКАДА́»**, якія ўжываюцца ў ролі выказніка і абазначаюць розны стан, забяспечаны паметай *безас., у знач. вык.*

§ 21. Формы слоў прыводзяцца звычайна скарочана, пачынаючы з той літары, пасля якой змяняецца абрыс слова ў дадзенай форме або пачынаючы з якой у форме слова мяняецца націск, напр.: **КУ́ФАР**, -фра (родны склон); **ДАЧКА́**, *ДМ* дачцэ́ (пераход *к* у *ч* у давальным і месным склонах); **ШАТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й (1, 2 і 3 ас. і форма загаднага ладу). Калі змены слоў пачынаюцца ў межах першых літар, то формы не скарачаюцца, напр., пень, пня.

§ 22. Калі ў якім-небудзь са значэнняў мнагазначнага слова ёсць дадатковыя граматычныя прыметы ці фармальныя адрозненні ад тых граматычных указанняў, што прыводзяцца пасля загалоўнага слова, то гэта паказваецца шляхам змяшчэння пасля арабскай лічбы адпаведных звестак. Так, у назоўнікаў адзначаецца, напрыклад, ужыванне дадзенага значэння толькі ў множным ліку ці толькі ў форме канкрэтнага склону. У дзеясловаў адзначаюцца, напрыклад, абмежаванні ва ўжыванні форм асобы, адносіны да безасабовасці.

§ 23. У выпадку, калі ў літаратурнай мове маюцца два варыянты форм, Слоўнік фіксуе гэтыя варыянты, прычым на першым месцы даецца варыянт, які рэкамендуецца як норма, а на другім — дапушчальны варыянт, напр.: **ПЕРАПЛЫ́СЦІ** *і* **ПЕРАПЛЫ́ЦЬ**, **ВАЎЧАНЯ́** *і* **ВАЎЧАНЁ**, **АРАНГУТА́Н** *і* **АРАНГУТА́НГ**.

### Назоўнікі

§ 24. Назоўнікі даюцца ў назоўным склоне адзіночнага ліку, за назоўнікам указваецца канчатак роднага склону адзіночнага ліку, пасля даюцца канчаткі назоўнага і роднага склонаў множнага ліку (формы множнага ліку не прыводзяцца, калі канкрэтны назоўнік іх не мае), затым указваецца род назоўніка: *м.* — мужчынскі, *ж.* — жаночы, *н.* — ніякі, напр.: **Я́БЛЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.;* **ПЛА́ЗМА**, -ы, *ж.* Калі мнагазначны назоўнік ва ўсіх сваіх значэннях можа ўжывацца і ў адзіночным, і ў множным ліку, прычым у якім-небудзь пэўным значэнні ўжываецца толькі ў множным ліку ці звычайна (або пераважна) у множным ліку, то ўказанне на гэта прыводзіцца пры значэнні, а перад першым значэннем даюцца формы назоўнага і роднага склонаў множнага ліку, напр.: **КАНЕ́Ц**, -нца́, *мн.* -нцы́, -нцо́ў, *м.* ... **6.** толькі *мн.;* **КАНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* ... **5.** звычайна *мн.* Калі ж мнагазначны назоўнік не ва ўсіх сваіх значэннях можа ўжывацца ў множным ліку або пераважна ў множным ліку, а толькі ў некаторых, то формы назоўнага і роднага склонаў множнага ліку перад нумарам **1** не даюцца, а паказваюцца толькі пры неабходных значэннях пасля арабскай лічбы нумара гэтых значэнняў, напр.: **ЗАКУ́СКА**, -і, *ДМ* -ку́сцы, *ж.* **1.** ... **2.** *мн.* -і, -сак; **ПРЫШЧЭ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* **1.** ... **2.** *мн.* -і, -пак. У назоўнікаў агульнага роду паказваецца словазмяненне ў абодвух родах (мужчынскім і жаночым), напр.: **ПЛА́КСА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -аў; **ЦІХО́НЯ**, -і, *ДМ* -ю, *Т* -ем, *м.; ДМ* -і, *Т* -яй (-яю), *ж., мн.* -і, -хонь. Іншы раз у агульнародавых назоўнікаў канчаткі ў абодвух родах могуць супадаць, тады артыкул афармляецца наступным чынам: **СІРАТА́**, -ы́, *ДМ* -раце́, *Т* -о́й (-о́ю), *мн.* сіро́ты *і (з ліч. 2, 3 ,4)* сіраты́, -ро́т, *м.* і *ж.;* **СКУПІЯНДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *Т* -о́й (-о́ю), *мн.* скупе́нды *і (з ліч. 2, 3, 4)* скупянды́, скупе́ндаў, *м.* і *ж.*

§ 25. У беларускай літаратурнай мове ёсць шмат выпадкаў, калі назоўнік у назоўным склоне множнага ліку без колькасных лічэбнікаў 2, 3, 4 мае адну форму, а ўжываючыся з гэтымі лічэбнікамі — другую. Такія выпадкі абавязкова адзначаюцца ў слоўніку, напр.: **ВЯДРО́**, -а́, *мн.* вёдры *і (з ліч. 2, 3, 4)* вядры́, вёдзер, вёдраў *і* вядзёр, *н.;* **ВЯРСТА́**, -ы́, *ДМ* -сце́, *мн.* вёрсты *і (з ліч. 2, 3, 4)* вярсты́, вёрст *і* -аў, *ж.;* **ДЗЯЎЧЫ́НА**, -ы, *мн.* дзяўча́ты *і (з ліч. 2, 3, 4)* дзяўчы́ны, -чат, *ж.;* **ДВАРАНІ́Н**, -а, *мн.* -ра́не *і (з ліч. 2, 3, 4)* двараніны, -ра́н, *м.;* **КУ́РЫЦА**, -ы, *мн.* ку́ры *і (з ліч. 2, 3, 4)* ку́рыцы, -рэй, *ж.;* **ЯРМО́**, -а́, *мн.* я́рмы *і (з ліч. 2, 3, 4)* ярмы́, -аў, *н.* Для беларускай літаратурнай мовы характэрны выпадкі, калі формы назоўнікаў у назоўным склоне множнага ліку без колькасных лічэбнікаў 2, 3, 4 і формы з гэтымі лічэбнікамі супадаюць арфаграфічна і адрозніваюцца толькі месцам націску. У формах, якія ўжываюцца толькі з лічэбнікамі 2, 3, 4, націск на канчатку. Такія выпадкі абавязкова адзначаюцца ў слоўніку, напр.: **КРЫСО́**, -а́, *мн.* кры́сы *і (з ліч. 2, 3, 4)* крысы́, кры́саў, *н.;* **ДЗІРА́**, -ы́, *мн.* дзі́ры *і (з ліч. 2, 3, 4)* дзіры́, дзір, *ж.;* **РУКА́**, -і́, *ДМ* руцэ́, *мн.* ру́кі *і (з ліч. 2, 3, 4)* рукі́, рук, *ж.;* **СТРУНА́**, -ы́, *мн.* стру́ны *і (з ліч. 2, 3, 4)* струны́, струн, *ж.*

§ 26. У назоўным склоне множнага ліку падаюцца назоўнікі, якія або зусім не маюць адзіночнага ліку, або ўжываюцца пераважна ў множным ліку. У першым выпадку пасля назоўнага склону ўказваецца толькі форма роднага склону множнага ліку, напр., **НАЖНІ́ЦЫ**, -ніц. У другім выпадку, акрамя роднага склону множнага ліку, указваюцца і формы назоўнага і роднага склонаў адзіночнага ліку, напр.,**ЧАРАВІ́КІ**, -аў, *адз.* чараві́к, -а, *м.*

§ 27. Пры зборных назоўніках даецца памета *зб.*, напр.: **СУ́ЧЧА**, -а, *н., зб.;* **ВЯРБНЯ́К**, вербняку́, *мн.* вербнякі́, вербнякó́ў, *м., зб.* Калі назоўнік ужываецца і ў значэнні зборнасці, і ў значэнні нязборнасці, гэта ўказваецца наступным чынам: **ГА́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *ж.,* таксама *зб.*

### Прыметнікі

§ 28. Прыметнікі даюцца ў назоўным склоне мужчынскага роду ў поўнай форме, напр.: **ВЯСЁЛЫ**, -ая, -ае; **ЗЯЛЁНЫ**, -ая, -ае; **ЦУДО́ЎНЫ**, -ая, -ае; **аве́чы**, -ая, -ае (у артыкуле **АВЕ́ЧКА**). Калі мужчынскі род не ўжываецца ці ўжываецца рэдка, гэта адзначаецца ў адпаведных выпадках.

§ 29. Кароткія формы даюцца пасля загалоўнага прыметніка з яго формамі, напр.: **ВІДНЫ́**, -а́я, -о́е; відзён, відна́, відно́; *мн.* відны́; **ГО́ЛЫ**, -ая, -ае; гол, -а; **КАРО́ТКІ**, -ая, -ае; -так, -тка. Кароткія формы ніякага роду даюцца ў тым выпадку, калі яны напісаннем ці націскам адрозніваюцца ад жаночага роду (як у выпадку пры слове **ВІДНЫ́**).

§ 30. Ступені параўнання даюцца ў выпадках, калі яны адрозніваюцца ад звычайных спосабаў іх утварэння. Вышэйшая ступень змяшчаецца пасля форм роду. Найвышэйшая ступень падаецца, у выпадку неабходнасці, за вышэйшай ступенню, напр., **ВЯЛІ́КІ**, -ая, -ае; бо́льшы; найвялі́кшы, найбо́льшы.

### Лічэбнікі

§ 31. Колькасныя лічэбнікі даюцца ў назоўным склоне з формамі роднага склону, а таксама іншых склонаў, калі яны маюць адхіленні ў параўнанні з родным склонам у сваім утварэнні і адрозніваюцца месцам націску. Парадкавыя лічэбнікі даюцца як вытворныя пры колькасных, напр., **ДВА́ЦЦАЦЬ**, -і́, -ццю́, *ліч. кольк.* ... ‖ *парадк.* **дваццáты**, -ая, -ае.

### Займеннікі

§ 32. Скланяльныя займеннікі даюцца ў назоўным склоне і, калі яны маюць формы роду, у мужчынскім родзе з прывядзеннем неабходных склонавых і іншых родавых форм. Яны забяспечваюцца паметай *займ.* і ўказаннем разраду: *прынал., неазнач.* і г.д.

## Дзеясловы

§ 33. Дзеясловы даюцца ў інфінітыве. Дзеяслоўныя формы падаюцца скарочана ў адпаведнасці з правіламі скарачэння (гл. § 21). Пасля загалоўнага слова ўказваюцца канчаткі 1, 2 і 3 асобы адзіночнага ліку цяперашняга (у дзеясловаў незакончанага трывання) або будучага простага (у дзеясловаў закончанага трывання) часу. Формы множнага ліку прыводзяцца, калі ў іх утварэнні ёсць адрозненні ад парадыгматычных форм адзіночнага ліку. Калі форма 1 асобы ці формы 1 і 2 асобы не ўтвараюцца або рэальна не ўжываюцца (бываюць выпадкі, асабліва ў многапрыставачных дзеясловах, што формы 1 і 2 асобы не ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку), то гэта ўказваецца і даюцца толькі ўжывальныя формы. Пры безасабовых дзеясловах прыводзіцца толькі форма 3 асобы адзіночнага ліку і даецца пamета *безас.* Пасля асабовых форм дзеяслова пры неабходнасці (калі ёсць адрозненні ва ўтварэнні і націску) даюцца формы прошлага часу, формы загаднага ладу, дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу пры пераходных дзеясловах, напр.: **АРГАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; **ПРЫНЕ́СЦІ**, -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; -нясём, -несяце́, -нясу́ць; -нёс, -не́сла; -нясі́; -не́сены.

Формы загаднага ладу даюцца ў слоўніку не пры ўсіх дзеясловах, а звычайна тады, калі яны адрозніваюцца фанетычна і арфаграфічна ў асноўным ад дасуфіксальнай часткі інфінітыва і могуць узнікаць цяжкасці пры іх утварэнні. Напрыклад, у слоўніку падаюцца формы загаднага ладу пры дзеясловах **БАЯ́ЦЦА** (бо́йся), **БУДАВА́ЦЬ** (буду́й), **БУРЧА́ЦЬ** (бурчы́), **ВЕ́ЗЦІ** (вязі́), **ВЯЗА́ЦЬ** (вяжы́), **ДРАЦЬ** (дзяры́), **Е́ХАЦЬ** (едзь), **ЗАГАРНУ́ЦЬ** (загарні́), **ЗАГАРЭ́ЦЬ** (загары́), **ЗАПРЭ́ГЧЫ** (запражы́), **ЗРАШЭ́ЦІЦЬ** (зрашэ́ць), **ІРВА́ЦЬ** (ірві́), **КАЗА́ЦЬ** (кажы́), **КАЛО́ЦЬ** (калі́), **ЛЯЦЕ́ЦЬ** (ляці́), **МА́ЗАЦЬ** (маж), **НЕ́СЦІ** (нясі́), **РАСЦЕ́РЦІ** (разатры́), **РАСЧА́ЦЬ** (разачні́), **СВІСТА́ЦЬ** (свішчы́), **СЕ́ЯЦЬ** (сей), **СКАКА́ЦЬ** (скачы́), **СЦЕРАГЧЫ́** (сцеражы́), **ТАПТА́ЦЬ** (тапчы́), **УЗЛЕ́ЗЦІ** (узлеזь), **УСПАЎЗЦІ́** (успаўзі́), **УСЫ́ПАЦЬ** (усы́п), **ХРУСЦЕ́ЦЬ** (хрусці́), **ЦЯРПЕ́ЦЬ** (цярпі́), **ШУМЕ́ЦЬ**[1] (шумі́) і г.д. У той жа час, напрыклад, пры дзеясловах **АБЯЦА́ЦЬ**, **ВАДЗІ́ЦЬ**, **ВАЗІ́ЦЬ**, **ВАРУШЫ́ЦЬ**, **ВАРЫ́ЦЬ**, **ЗАПАЛІ́ЦЬ**, **КАЦІ́ЦЬ**, **КАЧА́ЦЬ**, **МЯНЯ́ЦЬ**, **СІНІ́ЦЬ**, **СКАЗІ́ЦЬ**, **СКВА́РЫЦЬ**, **СЛУ́ХАЦЦА**, **УХІЛІ́ЦЦА** адпаведныя формы загаднага ладу *абяца́й, вадзі́, вазі́, варушы́, вары́, запалі́, каці́, кача́й, мяня́й, сіні́, сказі́, сквар, слу́хайся, ухілі́ся* адсутнічаюць.

Пасля форм указваецца прыналежнасць да дзеяслоўнага трывання: *зак., незак.* Затым паказваецца, калі патрэбна, моцнае кіраванне дзеяслова, г.зн. якога склону ён патрабуе, што абазначаецца склонавымі пытаннямі: *каго-чаго* (родны склон), *каму-чаму* (давальны склон), *каго-што* (вінавальны склон), *кім-чым* (творны склон), *пры кім-чым* (месны склон); кіраванне з прыназоўнікамі абазначаецца адпаведна *у каго-чаго, у што, перад кім-чым* і пад. Калі дзеяслоў кіруе толькі адушаўлёным назоўнікам, то ў склонавым пытанні даецца толькі займеннік *хто* (*каго, кім* і г.д.), а ў вінавальным склоне *каго (што)* для адрознення з родным. Калі дзеяслоў кіруе толькі неадушаўлёным назоўнікам, то ў склонавым пытанні даецца толькі займеннік *што* (*чаго, чым* і г.д.).

## Прыслоўі і прэдыкатывы

§ 34. Прыслоўі на *-а, па-...ску* (напр., *до́ўга, па-сябро́ўску*), утвораныя ад прыметнікаў, прыводзяцца ў артыкуле адпаведнага прыметніка ў якасці ілюстрацыйнага прыкладу. Тое самае адносіцца і да прэдыкатыўных прыслоўяў (прэдыкатываў) на *-а*, напр., **СУ́МНЫ** ... *С. чалавек. Сумныя вочы. Мне сумна* (у знач. вык.). Калі ж прыслоўе або прэдыкатыў на *-а* маюць свае спецыфічныя значэнні, якіх няма ў базавага прыметніка, то яны могуць давацца асобным артыкулам (гл., напр., словы **БЛА́ГА**, **БРЫ́ДКА**, **ВА́РТА**[2], **ПАРАЎНА́ЛЬНА**, **ПО́ЗНА**, **ПРА́МА**, **РО́ЗНА**, **СТРО́МА**[2] і інш.). Асобнымі артыкуламі даюцца таксама прыслоўі і прэдыкатывы на *-а*, у якіх адсутнічае суадносны прыметнік (напр.: **ПАЎЗВО́ДНА**, **СКО́СА**, **СКРЫ́ВА**, **СО́РАМНА**, **СУМЫ́СНА**, **ХО́РАША**, **ШКАДА́**, **ШКО́ДА**[2] і інш.), а таксама прыслоўі на *-а* неадпрыметнікавага ўтварэння (напр.: **БО́ЯЗНА**, **ДАСУ́ХА**, **ДАТЛА́**, **ДУБКА́**, **ЗА́ГАДЗЯ**, **ЗАДАРМА́**, **ЗАМА́ЛА**, **ЗАНА́ДТА**, **ЗАРА́НА**, **ЗА́ЎТРА**, **ЗАЎЧО́РА**, **ЗДАЎНА́**, **ІЛЬГА́**, **НА́ГАЛА**, **НА́ГЛУХА**, **НІ́ЦМА**, **РА́НА**[2], **РО́ЎМА**, **СПЯРША́**, **СТАРЧМА́**, **СТО́ЙМА**, **УЧО́РА** і некаторыя інш.). Прыслоўі і прэдыкатывы іншых утваральных тыпаў даюцца як асобныя словы са сваімі ўласнымі граматычнымі характарыстыкамі і тлумачэннямі.

## БЕЛАРУСКІ АЛФАВІТ

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| А а | Д д (Дж, дж, Дз, дз) | З з | Л л | П п | У у | Ц ц | Ь ь |
| Б б | Е е | І і | М м | Р р | Ў ў | Ч ч | Э э |
| В в | Ё ё | Й й | Н н | С с | Ф ф | Ш ш | Ю ю |
| Г г | Ж ж | К к | О о | Т т | Х х | Ы ы | Я я |

*Заўвага.* Дыграфы **дж** і **дз** пры размяшчэнні слоў у алфавітным парадку разглядаюцца кожны як дзве літары. Апостраф пад увагу не прымаецца.

Той (тая), хто вымагае непамерную цану, плату; хабарнік, махляр.

**АБДЗІРА́ЛАЎКА**, -і, *ДМ* -лаўцы, *ж.* (разм.). Вымаганне непамерна высокай платы (за паслугі, тавар і пад.).

**АБДЗІРА́ЦЦА** *гл.* абадрацца.

**АБДЗІРА́ЦЬ** *гл.* абадраць, абдзерці.

**АБДЗІ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** *гл.* абадраць. **2.** *мн.* Ільняное ці канапляное валакно з-пад грэбеня, кудзеля з такога валакна; зрэб'е. ‖ *прым.* **абдзі́рачны**, -ая, -ае (спец.). *А. станок.*

**АБДЗЬМУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Дзьмухаючы, ачысціць ад чаго-н. (пылу, пяску і пад.). ‖ *незак.* **абдзьму́хваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абдзьму́хванне**, -я, *н.*

**АБДЗЯЛІ́ЦЬ**, -дзялю́, -дзе́ліш, -дзе́ліць; -дзе́лены; *зак., каго-што.* **1.** Нічога не даць ці даць менш, чым іншым, дзелячы ці размяркоўваючы што-н. *Усіх надзяліў, а сябе абдзяліў. Прырода абдзяліла яго ростам.* **2.** Надзяліць усіх (многіх) чым-н., даючы кожнаму яго долю. *А. дзяцей цукеркамі.* ‖ *незак.* **абдзяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **абдзе́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абдзе́льванне**, -я, *н.*

**АБДЗЯЎБЦІ́**, -дзяўбу́, -дзяўбе́ш, -дзяўбе́; -дзяўбём, -дзеўбяце́, -дзяўбу́ць; -дзяўбі́; абдзяўба́ны; *зак., што.* **1.** Падзяўбаць, абкляваць, зрабіць паверхню няроўнай. *Куры абдзяўблі агуркі.* **2.** Паадбіваць што-н., дзеўбучы (разм.). *А. лёд.* ‖ *незак.* **абдзёўбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБДО́РВАННЕ** *гл.* абдарыць.

**АБДО́РВАЦЬ** *гл.* абдарыць.

**АБДРА́ПАНЫ**, -ая, -ае (разм.). Пакрыты драпінамі, абадраны. *Абдрапаныя рукі.*

**АБДРА́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Нанесці, зрабіць драпіну (многа драпін) на чым-н. *А. ногі ў лесе.* ‖ *незак.* **абдра́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБДУ́МАНЫ**, -ая, -ае. Зроблены свядома, усвядомлены, абгрунтаваны. *А. адказ. А. ўчынак.* ‖ *наз.* **абду́манасць**, -і, *ж.*

**АБДУ́МАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Асэнсаваць, сабрацца з думкамі. *Спакойна а., заглянуць самому сабе ў душу.* **2.** Передумаць, прыйсці да іншага рашэння. *Сцярджаў адно, але абдумаўся.* ‖ *незак.* **абду́мвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБДУ́МАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Усебакова ўзважыць, падрыхтавацца да вырашэння чаго-н. *А. план далейшага дзеяння. А. адказ на пытанне.* ‖ *незак.* **абду́мваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абду́мванне**, -я, *н.*

**АБДУРЫ́ЦЬ**, -дуру́, -ду́рыш, -ду́рыць; -ду́раны; *зак., каго-што* (разм.). Ашукаць, перахітрыць каго-н. *А. прастака.* ‖ *незак.* **абду́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абду́рванне**, -я, *н.*

**АБДЫМА́ЦЦА** *гл.* абняцца.

**АБДЫМА́ЦЬ** *гл.* абняць.

**АБДЫМІ́ЦЬ**, -млю́, -мі́ш, -мі́ць; -мі́м, -міце́, -мя́ць; -ды́млены; *зак., каго-што.* **1.** Абдаць дымам. *А. пчол.* **2.** Пакрыць сажай, задыміць (разм.). *А. хату.*

**АБДЫ́МКІ**, -аў. Ахопліванне рукамі каго-н. як выказванне ласкі, замілавання і пад. *Сціснуць у абдымках.* ◊ **Сустрэць з распасцёртымі абдымкамі** — з радасцю, прыветна.

**АБЕ́ГЧЫ**, абягу́, абяжы́ш, абяжы́ць; абяжы́м, абежыце́, абягу́ць; абяжы́; абе́ганы; *зак., каго-што.* Тое, што і *абабегчы.* ‖ *незак.* **абяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБЕ́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Яда сярод дня, полудзень. *Запрасіць на а.* **2.** Ежа для спажывання ў абедзенны час. *А. з трох страў. Смачны а.* **3.** Час, у які звычайна абедаюць; поўдзень. *Быў дождж у а. Выехаць у вёску пасля абеду.* **4.** Час для абеду, перапынак у працы. *У магазіне а.* **5.** Форма прыёму гасцей з нагоды якой-н. урачыстасці. *Даць а. Званы а.* ◊ **Царскі абед** — вельмі багаты, пышны абед. ‖ *прым.* **абе́дзенны**, -ая, -ае. *А. перапынак.*

**АБЕ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Есці ў абедзенны час; есці абед. *Пара а.* ‖ *зак.* **паабе́даць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЕ́ДЗВЕ** *гл.* абодва.

**АБ'Е́ДКІ**, -аў. Рэшткі ад яды, недаедзеныя кавалкі.

**АБЕ́ДНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Набажэнства ў хрысціян, якое адбываецца раніцай або ў першай палове дня; тое, што і *літургія. Хадзілі на абедню.*

**АБЕЗГАЛО́ВІЦЬ**, -ло́ўлю, -ло́віш, -ло́віць; -ло́ўлены; *зак.* **1.** Зняць, адсячы галаву каму-н. **2.** *перан., што.* Пазбавіць кіраўніцтва, правадыра. *А. паўстанне.* ‖ *незак.* **абезгало́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абезгало́ўліванне**, -я, *н.*

**АБ'Е́ЗД**, -у *і* -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у, *гл.* аб'ездзіць, аб'ехаць. **2.** -а. Месца, па якім можна аб'ехаць. *Часовы а.*

**АБ'Е́ЗДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *што.* Часта выязджаючы, пабываць у многіх месцах. *А. усю краіну.* **2.** *каго.* Прывучыць каня да язды, хадзіць пад сядлом. *А. жарэбчыка.* **3.** *што.* Абкатаць або зрабіць больш прыдатным, яздой праверыць машыну. *А. машыну.* **4.** *што.* Укатаць, зрабіць роўным, гладкім (пра дарогу). ‖ *незак.* **аб'язджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **аб'е́зд**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 знач.) *Аб'езд хворых.*

**АБ'Е́ЗДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** *гл.* аб'ездзіць. **2.** Дарога, па якой можна аб'ехаць якую-н. перашкоду. *Сцежак і аб'ездак было ў той мясцовасці многа.*

**АБ'Е́ЗДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Вартаўнік, які пастаянна аб'язджае, ахоўвае вялікі ўчастак чаго-н. *Лясны а.* **2.** Спецыяліст па аб'ездцы коней.

**АБЕЗЗАРА́ЖВАЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для абеззаражвання, дэзынфекцыі. *Абеззаражвальныя сродкі.*

**АБЕЗЗАРА́ЗІЦЬ**, -ра́жу, -ра́зіш, -ра́зіць; -ра́жаны; *зак., каго-што.* Зрабіць незаразным, дэзынфіцыраваць. *А. памяшканне.* ‖ *незак.* **абеззара́жваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абеззара́жванне**, -я, *н.*

**АБЕЗЗЯМЕ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Пазбавіць каго-н. зямлі, зрабіць беззямельным. ‖ *незак.* **абеззяме́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абеззяме́льванне**, -я, *н.*

**АБЕЗНАДЗЕ́ІЦЬ**, -дзе́ю, -дзе́іш, -дзе́іць; -дзе́ены; *зак., каго.* Пазбавіць каго-н. надзеі на што-н. ‖ *незак.* **абезнадзе́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБ'Е́КТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У філасофіі: тое, што існуе па-за намі і незалежна ад нашай свядомасці, навакольны свет, матэрыяльная рэчаіснасць (спец.). **2.** З'ява, асоба, якія падпадаюць пад уздзеянне чыёй-н. дзейнасці. *А. навуковага даследавання. А. назірання.* **3.** Прадпрыемства, будоўля, установа як адзінка гаспадарчага або абароннага значэння, а таксама ўсё тое, што з'яўляецца месцам якой-н. дзейнасці. *А. будаўніцтва. Пускавы а.* **4.** У граматыцы: семантычныя катэгорыі са значэннем таго, на каго (што) накіравана дзеянне; тое, што і *дапаўненне* (спец.). ‖ *прым.* **аб'е́ктны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **аб'е́ктавы**, -ая, -ае (да 3 знач.; спец.).

**АБ'ЕКТЫВАВА́ЦЬ**, -тыву́ю, -тыву́еш, -тыву́е; -тыву́й; -тывава́ны; *зак. і незак., што.* Увасобіць (увасабляць) што-н. у чым-н. аб'ектыўным, рэчыўным, даступным успрыманню. *А. мастацкі замысел.* ‖ *наз.* **аб'ектыва́цыя**, -і, *ж.*

**АБ'ЕКТЫВІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Філасофскае вучэнне аб аб'ектыўнасці рэчаіснасці, згодна з якім грамадскае жыццё не падлдаецца пераўтварэнням, актыўнаму ўздзеянню. **2.** Непрадузятасць, бесстароннасць, аб'ектыўны падыход да чаго-н. ‖ *прым.* **аб'ектыві́сцкі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**АБ'ЕКТЫВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік аб'ектывізму (у 1 знач.).

**АБ'ЕКТЫ́Ў**, -ты́ва, *мн.* -ты́вы, -ты́ваў, *м.* Лінзавая сістэма ў аптычным прыборы, якая дае паменшаны або павялічаны відарыс аб'екта. *А. тэлескопа. А. фотаапарата.*

**АБ'ЕКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які існуе па-за намі як аб'ект (у 1 знач.) або звязаны са знешнімі ўмовамі, незалежна ад чыёй-н. волі. *Аб'ектыўныя прычыны. Аб'ектыўная рэчаіснасць.* **2.** Пазбаўлены суб'ектывізму, праўдзівы, бесстаронні. *А. падыход. Аб'ектыўная ацэнка.* ‖ *наз.* **аб'екты́ўнасць**, -і, *ж.*

**АБЕЛІ́СК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Помнік у выглядзе гранёнага, звужанага ўверсе слупа, які ставіцца ў гонар якой-н. падзеі або на ўшанаванне чыёй-н. памяці. *Гранітныя абеліскі мінулай вайны.* ‖ *прым.* **абелі́скавы**, -ая, -ае.

**АБЕ́ЛЬВАЦЬ** *гл.* абяліць.

**АБЕРАГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што.* Ахоўваць, засцерагаць ад чаго-н. небяспечнага; вартаваць. *А. дзяцей ад хвароб. А. ад трывог і сумненняў. А. спакой душы.* ‖ *зак.* **аберагчы́**, -рагу́, -ражэ́ш, -ражэ́; -ражо́м, -ражаце́, -рагу́ць; абяро́г, абе-

раглá, -лó; абераж́ы. ‖ *звар.* **аберагáцца**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* **аберагч́ыся**, -рагýся, -ражэ́шся, -ражэ́цца; -ражóмся, -ражацéся, -рагýцца; -раж́ыся.

**АБЕРÁЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Адхіленне ад чаго-н., а таксама скажэнне чаго-н. *А. аптычных сістэм. А. ідэй.* ‖ *прым.* **аберацы́йны**, -ая, -ае.

**АБЕРТÓН**, -у, *м.* (спец.). Дадатковы тон, які надае асноўнаму гуку асобае адценне або тэмбр.

**АБÉРУЧ**, *прысл.* Абедзвюма рукамі (узяць, абхапіць, трымаць што-н. і пад.). *Трымацца а.*

**АБ'ÉСЦІ**, аб'éм, аб'ясí, аб'éсць; аб'ядзíм, аб'ясцé, аб'ядýць; аб'éў, аб'éла; аб'éш; аб'éдзены; *зак., каго-што.* **1.** Абгрызці, абкусаць з бакоў, з'есці што-н. зверху. *Вусень аб'еў лісце.* **2.** З'еўшы многа, прычыніць страту каму-н. (разм.). *Ён вас не аб'есць.* ‖ *незак.* **аб'ядáць**, -áю, -áеш, -áе.

**АБ'ÉСЦІСЯ**, аб'éмся, аб'ясíся, аб'éсца; аб'ядзíмся, аб'ясцéся, аб'ядýцца; аб'éўся, аб'éлася; аб'éшся; *зак.* З'есці занадта многа, пераесці. *А. тортам.* ‖ *незак.* **аб'ядáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**АБ'ÉХАЦЬ**, -éду, -éдзеш, -éдзе; -éдзь; *зак., каго-што.* **1.** Праехаць вакол каго-, чаго-н. *А. балота.* **2.** Праехаць збоку, абмінуць каго-, што-н. *А. горад. А. людзей на дарозе.* **3.** Ездзячы, пабываць у многіх месцах. *А. паўсвету.* **4.** Апусціцца, з'ехаць уніз. *Аб'ехала павозка.* **5.** *перан.* Схуднець. *Нешта ж ты зусім аб'ехаў.* ‖ *незак.* **аб'язджáць**, -áю, -áеш, -áе (да 1—4 знач.). ‖ *наз.* **аб'éзд**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1—3 знач.). *Ехаць у а.*

**АБÉЧАК**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* Лубяны абадок у рэшаце, сіце і пад. ‖ *прым.* **абéчкавы**, -ая, -ае.

**АБ'ЁМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Велічыня чаго-н., выражаная ў кубічных адзінках (у даўжыню, вышыню і шырыню). *А. памяшкання.* **2.** *перан.* Наогул велічыня, колькасць, змест чаго-н. з пункту гледжання памераў, саставу. *Вялікі а. работы. А. ведаў.* ‖ *прым.* **аб'ёмны**, -ая, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **аб'ёмнасць**, -і, *ж.*

**АБ'ЁМІСТЫ**, -ая, -ае. Вялікі паводле аб'ёму (у 2 знач.). *А. том.* ‖ *наз.* **аб'ёмістасць**, -і, *ж.*

**АБ'ЁМНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* аб'ём. **2.** Вялікі паводле аб'ёму, памеру. *Аб'ёмныя блокі.* ‖ *наз.* **аб'ёмнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**АБЖÁЦЬ**, абажнý, абажнéш, абажнé; абажнём, абажняцé, абажнýць; абажнí; абжáты; *зак., што.* Зжаць што-н. вакол чаго-н. *А. траву вакол дрэва.* ‖ *незак.* **абжынáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **абж́ын**, -у, *м. і* **абжынáнне**, -я, *н.*

**АБЖÓРА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -жóр *і* -жóраў (разм.). Прагны да яды, пражэрлівы, ненасытны чалавек.

**АБЖÝЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што* (разм.). Ашукаць, абдурыць у карыслівых мэтах. ‖ *незак.* **абжýльваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЖЫТЫ**, -ая, -ае. Такі, у якім ужо жывуць, асвоены, добраўпарадкаваны. *А. дом.* ‖ *наз.* **абж́ытасць**, -і, *ж.*

**АБЖ́ЫЦЦА**, -жывýся, -жывéшся, -жывéцца; -жывёмся, -жывяцéся, -жывýцца; -ж́ыўся, -жылáся, -лóся; *зак.* **1.** Набыць, нажыць усё неабходнае на новым месцы жыхарства. *А. ў новай кватэры.* **2.** Прывыкнуць да жыцця на новым месцы, звыкнуцца з новымі ўмовамі. *А. ў горадзе.* ‖ *незак.* **абжывáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**АБЖ́ЫЦЬ**, -жывý, -жывéш, -жывé; -жывём, -жывяцé, -жывýць; -ж́ыў, -жылá, -лó; -ж́ыты; *зак., што.* Асвоіць, зрабіць жылым, прыстасаваць для жыцця. *А. новае месца. А. кватэру.* ‖ *незак.* **абжывáць**, -áю, -áеш, -áе.

**АБЗÁ**, -́ы, *ж.* Неабрэзаны край дошкі. *Дошка з абзой.*

**АБЗАВÉСЦІСЯ**, -вядýся, -вядзéшся, -вядзéцца; -вядзёмся, -ведзяцéся, -вядýцца; -вёўся, -вялáся, -лóся; -вядзíся; *зак.* Набыць, стварыць што-н. неабходнае для жыцця, гаспадаркі і пад. *А. сям'ёй. А. мэбляй.* ‖ *незак.* **абзавóдзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; -дзься. ‖ *наз.* **абзавядзéнне**, -я, *н.*

**АБЗАДÁЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што.* Даць задатак за што-н. *А. дом.* ‖ *незак.* **абзадáчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЗÁЦ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чырвоны радок, водступ управа ў пачатку першага радка тэксту. *Пісаць з абзаца.* **2.** Частка тэксту паміж двума такімі водступамі. *Прачытаць першы а. на памяць.*

**АБЗВАНÍЦЬ**, -званю, -звóніш, -звóніць; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Пазваніць многім ці ў многія месцы па тэлефоне. *А. знаёмых. А. усе арганізацыі.* **2.** *перан.* Расказаць аб чым-н. усюды, разнесці якую-н. вестку. ‖ *незак.* **абзвóньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЗЕЛЯНÍЦЬ**, -зяленю, -зялéніш, -зялéніць; -зялéнены; *зак., што.* Пасадзіць дрэвы, кусты там, дзе няма раслiннасці. *А. вуліцы горада.* ‖ *незак.* **абзеляняць**, -яю, -яеш, -яе. ‖ *наз.* **абзелянéнне**, -я, *н.*

**АБЗЫВÁЦЦА** *гл.* абазвацца.

**АБЗЫВÁЦЬ** *гл.* абазваць.

**АБІБÓК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм., неадабр.). Гультай, лежабок, лайдак. *А. заўсёды шукае лёгкай работы.* ‖ *прым.* **абібóцкі**, -ая, -ае.

**АБІБÓЦТВА**, -а, *н.* (разм., неадабр.). Гультайства. *Абібоцтвам сям'ю не накорміш.*

**АБІВÁЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па абіўцы мэблі. ‖ *ж.* **абівáльшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**АБІВÁЦЬ** *гл.* абабіць.

**АБ'ÍНЕЛЫ**, -ая, -ае. Пакрыты інеем. *Аб'інелыя дрэвы.*

**АБ'ÍНЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* Пакрыцца інеем з усіх бакоў. *Барада аб'інела на марозе. Дрэвы аб'інелі.* ‖ *незак.* **аб'íньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБІРÁЛА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -рáл (разм.). Той, хто бессаромна, нахабна абірае каго-н. або бярэ з другога непамерную плату, запрошвае вялікую цану. *Абіралы давялі да галечы.*

**АБІРÁЛАЎКА**, -і, *ДМ* -лаўцы, *ж.* (разм.). Тое, што і *абдзіралаўка.*

**АБІРÁНЫ**, -ая, -ае. **1.** Ачышчаны ад лупін. *Абіраная бульба.* **2.** Зняты з дрэва. *Абіраныя яблыкі.*

**АБІРÁЦЬ** *гл.* абраць.

**АБÍРКІ**, -рак. Лушпінне, шалупінне і інш. адходы пасля ачысткі, абабірання бульбы, пладоў і пад., адкіды ад чаго-н.

**АБІСÍНЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Ранейшая назва насельніцтва Эфіопіі (Абісініі); эфіопы. ‖ *ж.* **абісíнка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **абісíнскі**, -ая, -ае.

**АБІТУРЫÉНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які паступае ў вышэйшую або спецыяльную навучальную ўстанову. ‖ *ж.* **абітурыéнтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **абітурыéнцкі**, -ая, -ае.

**АБІЎКА**, -і, *ДМ* абіўцы, *ж.* **1.** *гл.* абабіць. **2.** Матэрыял, якім абіваюць што-н. *Плюшавая а. мэблі.* ‖ *прым.* **абíвачны**, -ая, -ае *і* **абіўны**, -ая, -ае.

**АБКАЛАЦÍЦЬ**, -лачý, -лóціш, -лóціць; -лóчаны; *зак., што.* Абтрэсці, абабіць, калоцячы. *А. яблыню. Вецер абкалаціў садавіну.* ‖ *незак.* **абкалóчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБКАЛÓЦЦА**, -калюся, -кóлешся, -кóлецца; -калíся; *зак.* Параніць сябе чым-н. калючым у многіх месцах. *А. шыпшынай.*

**АБКАЛÓЦЬ**[1], -калю, -кóлеш, -кóле; -калí; -кóлаты; *зак., што.* Адбіць, адкалоць кавалкамі што-н. з чаго-н. *А. лёд.* ‖ *незак.* **абкóлваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абкóлванне**, -я, *н.*

**АБКАЛÓЦЬ**[2], -калю, -кóлеш, -кóле; -калí; -кóлаты; *зак., каго-што.* **1.** Пакалоць чым-н. вострым вакол чаго-н. або па ўсёй паверхні; параніць уколамі каго-, што-н. *А. рукі калючкамі руж.* **2.** Зрабіць ін'екцыю або некалькі ін'екцый лекавых сродкаў вакол якога-н. хворага месца (раны, зуба і пад.). *А. зуб абязбольвальнікам* (разм.). **3.** Уздзейнічаць на вышэйшую нервовую дзейнасць, зрабіўшы ін'екцыю псіхатропных рэчываў (разм.). ‖ *незак.* **абкóлваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абкóлванне**, -я, *н.*

**АБКÁПАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Абкапаць сябе чым-н. *А. чарнілам.* ‖ *незак.* **абкáпвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБКАПÁЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* Абкружыць сябе землянымі збудаваннямі. ‖ *незак.* **абкóпвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБКÁПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Запэцкаць, абліць кроплямі чаго-н. *А. абрус чарнілам.* ‖ *незак.* **абкáпваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБКАПÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Ускапаць зямлю вакол чаго-н.; капáючы, абгарнуць, абкідаць што-н.

чым-н. *А. фруктовыя дрэвы.* ‖ *незак.* **абкóпваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абкóпванне**, -я, *н. і* **абкóпка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.*

**АБКАРМІ́ЦЬ**, -кармлю́, -кóрміш, -кóрміць; -кóрмлены; *зак., каго.* Накарміць звыш меры, на шкоду здароўю. *А. дзіця.* ‖ *незак.* **абкóрмліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абкóрм**, -у, *м. і* **абкóрмліванне**, -я, *н.*

**АБКАРНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што* (разм.) **1.** Падрэзаць, абстрыгчы вельмі коратка, няроўна. *А. валасы.* **2.** *перан.* Няўмела скараціць які-н. тэкст; пазбавіць якое-н. вучэнне, тэорыю чаго-н. істотнага; сказіць. *А. рукапіс. А. гіпотэзу.*

**АБКАРЫ́ЦЬ**, -кару́, -кóрыш, -кóрыць; -кóраны; *зак., што.* Тое, што і *акарыць. А. бервяно.* ‖ *незак.* **абкóрваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абкóрванне**, -я, *н.*

**АБКАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які пакрыўся брудам, засохлай гразззю і пад. *А. кабан.*

**АБКАРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* Пакрыцца брудам, засохлай гразззю і пад. *Так абкарэў, што не адмыеш.*

**АБКАСІ́ЦЬ**, -кашу́, -кóсіш, -кóсіць; -кóшаны; *зак.* **1.** *што.* Скасіць траву вакол чаго-н. *А. траву вакол дрэў.* **2.** *што.* Скасіць усё, пакасіць. *А. лугі. А. балота.* **3.** *каго.* Апярэдзіць, перамагчы ў касьбе. *Хто каго абкосіць.* ‖ *незак.* **абкóшваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абкóшванне**, -я, *н.*

**АБКАТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* **1.** Стаць роўным, гладкім; утрамбавацца ад язды. *Дарога абкаталася.* **2.** Прайсці абкатку (спец.). *Машына абкаталася.* ‖ *незак.* **абка́твацца**, -аецца.

**АБКАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Ездзячы, зрабіць роўным, гладкім, прыгодным для язды. *А. дарогу.* **2.** Пробнай яздой праверыць прыгоднасць чаго-н. (спец.). *А. машыну.* ‖ *незак.* **абка́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абка́тванне**, -я, *н.*, **абка́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж. і* **абка́т**, -у, *М* -ка́це, *м.*

**АБКА́ТАЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). Звязаны з абкаткай. *А. тэрмін.*

**АБКА́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па абкатцы. ‖ *ж.* **абка́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**АБКАЦІ́ЦЬ**, -качу́, -кóціш, -кóціць; -кóчаны; *зак., што.* **1.** Пракаціць што-н. вакол чаго-н. (сыпкім, вязкім). *А. абруч вакол слупа.* **2.** Аб'ехаць, праехаць пэўную тэрыторыю (разм.). *Абкаціў паўраёна.*

**АБКАЧА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., у што.* Качаючыся, пакрыць сябе чым-н. *А. ў снег. А. ў гразь.* ‖ *незак.* **абка́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБКАЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што, у чым.* Пераварочваючы з боку на бок, пакрыць чым-н. (сыпкім, вязкім) *А. рыбу ў муцэ.* ‖ *незак.* **абка́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абка́чванне**, -я, *н.*

**АБКВЭ́ЦАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Абмазацца чым-н., зрабіцца брудным, запэцкацца.

**АБКВЭ́ЦАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Абмазаць што-н. чым-н., забрудзіць. *А. вопратку.*

**АБКІ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што.* Кідаючы, пакрыць каго-, што-н., абсыпаць. *А. дрэва зямлёй.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каго-што.* Пакрыць высыпкай. *Губы абкідала* (безас.). **3.** *што.* Абшыць краі тканіны. *А. петлі ў кашулі.* ‖ *незак.* **абкіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **абкі́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абкіда́нне**, -я, *н. і* **абкі́дванне**, -я, *н.*

**АБКІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* Замазаць кітам шчыліны, пазы. *А. вокны.* ‖ *незак.* **абкітóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абкітóўванне**, -я, *н. і* **абкітóўка**, -і, *ДМ* -тóўцы, *ж.*

**АБКЛА́Д**, -а, *м.* **1.** Абкружэнне звера ў часе палявання (спец.) *А. ваўка.* **2.** Аздабленне паверхні абразоў і пераплёту царкоўных кніг. *Абраз у сярэбраным абкладзе.*

**АБКЛА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* **1.** *гл.* абкласці *і* аблажыць. **2.** Тое, чым абкладзена (абложана) што-н. *Дзярновая а.*

**АБКЛА́СЦІ**, -кладу́, -кладзе́ш, -кладзе́; -кладзём, -кладзяце́, -кладу́ць; -кладзі́; -кла́дзены; *зак., каго-што.* **1.** Пакласці што-н. вакол каго-, чаго-н., прыкладваючы, пакрыць з усіх бакоў. *А. печ кафляй. А. хворага грэлкамі.* **2.** *што.* Загарнуць, абгарнуць. *А. кнігу газетай.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Пакрыць суцэльнай масай чаго-н., зацягнуць; абвалачы. *Хмары абклалі неба. Горла абклала* (безас.; пра налёт у горле). **4.** *каго-што.* Акружыць; асадзіць (звера на паляванні, які-н. умацаваны пункт войскам). *А. мядзведзя ў берлагу. А. крэпасць.* **5.** Вызначыць падатак, пошліну і пад., абавязаць да выплаты. *А. падаткам.* **6.** Груба аблаяць (разм.). *А. моцным словам.* ‖ *незак.* **абклада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **абкла́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **абкла́сціся**, -кладу́ся, -кладзе́шся, -кладзе́цца; -кладзёмся, -кладзяце́ся, -кладу́цца; -кладзі́ся (да 1 знач.); *незак.* **абклада́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **абкла́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **абклада́нне**, -я, *н.* (да 1, 2, 4 і 5 знач.), **абкла́дванне**, -я, *н.* (да 1, 2, 4 і 5 знач.) *і* **абкла́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**АБКЛЕ́ІЦЬ**, -е́ю, -е́іш, -е́іць; -е́ены; *зак., што.* Пакрыць чым-н., клеючы. *А. сцены абоямі.* ‖ *незак.* **абкле́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абкле́йка**, -і, *ДМ* -е́йцы, *ж. і* **абкле́йванне**, -я, *н.*

**АБКÓЛВАННЕ**[1] *гл.* абкалоць[1].

**АБКÓЛВАННЕ**[2] *гл.* абкалоць[2].

**АБКÓЛВАЦЬ**[1] *гл.* абкалоць[1].

**АБКÓЛВАЦЬ**[2] *гл.* абкалоць[2].

**АБКÓПВАННЕ** *гл.* абкапа́ць.

**АБКÓПВАЦЬ** *гл.* абкапа́ць.

**АБКÓПКА** *гл.* абкапа́ць.

**АБКÓРМ** *гл.* абкарміць.

**АБКÓРМЛІВАННЕ** *гл.* абкарміць.

**АБКÓРМЛІВАЦЬ** *гл.* абкарміць.

**АБКÓЎЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Коўзаючыся, зрабіць пэўнае месца слізкім, прыгодным для катання. ‖ *незак.* **абкóўзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБКРАДА́ННЕ** *гл.* абакрасці.

**АБКРАДА́ЦЬ** *гл.* абакрасці.

**АБКРА́ДВАННЕ** *гл.* абакрасці.

**АБКРА́ДВАЦЬ** *гл.* абакрасці.

**АБКРА́СЦІ** *гл.* абакрасці.

**АБКРУЖЫ́ЦЬ**, -ружу́, -ру́жыш, -ру́жыць; -ру́жаны; *зак., каго-што.* Тое, што і *акружыць. А. увагай і клопатамі хворага.* ‖ *незак.* **абкружа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абкружэ́нне**, -я, *н.*

**АБКРУЦІ́ЦЦА**, -ручу́ся, -ру́цішся, -ру́ціцца; *зак.* **1.** Укруціць сябе ў што-н., загарнуцца. *А. коўдрай.* **2.** Абвіцца вакол чаго-н. *Лейцы абкруціліся вакол аглоблі.* **3.** Абысці, аб'ехаць, абляцець вакол чаго-н. ‖ *незак.* **абкру́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБКРУЦІ́ЦЬ**, -ручу́, -ру́ціш, -ру́ціць; -ру́чаны; *зак.* **1.** *што.* Абматаць, абвіць што-н. вакол чаго-н. *А. шалік вакол шыі.* **2.** *што.* Заматаць, укруціць што-н. чым-н.; загарнуць у што-н., ахінуць чым-н. з усіх бакоў. *А. нагу бінтам.* **3.** *каго.* Абхітрыць (разм.). *Абкруціў мужык пана.* ‖ *незак.* **абкру́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБКРЫВА́ВІЦЦА**, -ва́ўлюся, -ва́вішся, -ва́віцца; *зак.* Тое, што і *акрывавіцца.* ‖ *незак.* **абкрыва́ўлівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБКРЫВА́ВІЦЬ**, -ва́ўлю, -ва́віш, -ва́віць; -ва́ўлены; *зак., каго-што.* Тое, што і *акрывавіць. А. вопратку.* ‖ *незак.* **абкрыва́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБКРЫ́ЦЦА**, -ы́юся, -ы́ешся, -ы́ецца; *зак.* Тое, што і *акрыцца. А. хусткай.* ‖ *незак.* **абкрыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБКРЫ́ЦЬ**, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак., каго-што.* Тое, што і *акрыць. А. плечы хусткай. Маладое жыта поле ўсё абкрыла.* ‖ *незак.* **абкрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБКРЫШЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́шыцца; *зак.* Раскрышыцца па паверхні, па краях. *Цэгла старога муру абкрышылася.* ‖ *незак.* **абкры́швацца**, -аецца.

**АБКРЫШЫ́ЦЬ**, -рышу́, -ры́шыш, -ры́шыць; -ры́шаны; *зак., што.* Раскрышыць што-н. з краёў. *А. хлеб.* ‖ *незак.* **абкры́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБКУРÓДЫМЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; -млены; *зак.* (разм.). Пакрыцца сажай, гарам, зрабіцца чорным ад дыму; абкурэць. *А. на пажары.*

**АБКУРÓДЫМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак., каго-што* (разм.). Пакрыць гарам, сажай што-н., каго-н. *А. шкло.* ‖ *незак.* **абкурóдымліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБКУРЫ́ЦЦА**, -куру́ся, -ку́рышся, -ку́рыцца; *зак.* **1.** Зрабіцца чорным, рудым ад дыму. *А. каля вогнішча.* **2.** Скурыць свой тытунь да рэшты. *Абкурыўся дзед, няма чаго закурыць.* **3.** Зазнаць уздзеянне наркатычных рэчываў. *А. опіумам.*

**АБКУРЫ́ЦЬ**, -куру́, -ку́рыш, -ку́рыць; -ку́раны; *зак.* **1.** *каго-што.* Абдаць каго-,

што-н. дымам, духмянымі рэчывамі і пад. *А. ладанам. А. пчол.* **2.** *што.* Зрабіць што-н. чорным, рудым ад дыму. *А. пальцы.* **3.** *каго.* Скурыць чый-н. тытунь (разм.). **4.** *што.* Зрабіць больш зручным для курэння. *А. люльку.* ‖ *незак.* **абку́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абку́рванне**, -я, *н.* (у 1 знач.).

**АБКУРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* Тое, што і *абкуродымець. Сцены абкурэлі.*

**АБКУСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -ку́саны *і* -куса́ны; *зак., каго-што.* Кусаючы, аб'есці, абгрызці. *А. яблык з усіх бакоў. А. пазногці.* ‖ *незак.* **абку́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абку́сванне**, -я, *н.*

**АБЛА́ВА**, -ы, *ж.* **1.** Паляванне, пры якім месца, дзе знаходзіцца звярына, акружаецца, ачэпліваецца паляўнічымі і загоншчыкамі. *А. на ваўкоў.* **2.** Акружэнне якога-н. месца з мэтай злавіць каго-н. *Фашысты зрабілі аблаву.* ‖ *прым.* **абла́ўны**, -ая, -ае.

**АБЛАВУ́ХА**, -і, *ДМ* -ву́се, *мн.* -і, -ву́х, *ж.* Зімовая шапка; вушанка. *Надзеў сваю аблавуху.*

**АБЛАВУ́ХІ**, -ая, -ае. **1.** З абвіслымі вушамі. *А. сабака.* **2.** *перан.* Нехлямяжы, няспрытны, някемлівы (пра чалавека; разм.).

**АБЛАГО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго.* Выклікаць, выхаваць у кім-н. пачуццё лагоднасці, сардэчнасці, незлаславасці. *А. хлопчыка.* ‖ *незак.* **аблаго́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЛА́ДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* Навесці лад у гаспадарцы, адбудавацца, абжыцца. *А. на новым месцы.* ‖ *незак.* **абла́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБЛА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* **1.** Прывесці да ладу, адрамантаваць, паправіць. *А. старую хату.* **2.** Уладзіць, арганізаваць (разм.). *А. справу.* ‖ *незак.* **абла́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абла́джванне**, -я, *н.*

**АБЛАЖНЫ́**, -а́я, -о́е. Тое, што і *абложны* (у 2 знач.). *А. дождж.*

**АБЛАЖЫ́ЦЬ**, -лажу́, -ло́жыш, -ло́жыць; -ло́жаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Палажыць што-н. вакол каго-, чаго-н. *А. хворага грэлкамі. А. градку дзёрнам.* **2.** *што.* Аздабляючы, умацоўваючы што-н., пакрыць паверхню чым-н. *А. печ кафляй.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Пакрыць суцэльнай масай чаго-н., абвалачы. *Хмары аблажылі неба. Язык аблажыла* (безас.: пра налёт на языку пры захворванні). **4.** *каго-што.* Акружыць (звера на паляванні, які-н. умацаваны пункт войскам). *А. мядзведзя. А. крэпасць.* **5.** *каго-што.* Абавязаць да выплаты чаго-н. *А. падаткамі.* **6.** *што.* Адвярнуць, апусціць. *А. каўнер.* **7.** *што.* Абшыць чым-н. *А. аксамітам.* **8.** *каго-што.* Паваліць, абваліць; забіць (разм.). *А. дрэва. А. кабана.* **9.** *каго-што, чым і без дап.* Груба аблаяць (разм.). *А. моцным словам.* ‖ *звар.* **аблажы́цца**, -лажу́ся, -ло́жышся, -ло́жыцца (да 1 знач.). ‖ *наз.* **абкла́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.) *і* **аблажэ́нне**, -я, *н.* (да 4 і 5 знач.).

**АБЛА́ЗІЦЬ**[1], -ла́жу, -ла́зіш, -ла́зіць; *зак., што* (разм.). Лазячы, шукаючы каго-, што-н., пабыць усюды. *А. увесь лес. А. усе закуткі.*

**АБЛА́ЗІЦЬ**[2] *гл.* аблезці.

**АБЛАКАЦІ́ЦЦА**, -качу́ся, -ко́цішся, -ко́ціцца; *зак.* Абаперціся локцем (локцямі) на што-н. *А. на падаконнік.* ‖ *незак.* **аблако́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБЛАМА́ЦЦА**, -ламлю́ся, -ло́мішся, -ло́міцца; -ламі́ся; *зак.* Ломячыся, аддзяліцца, адваліцца. *Галіна дрэва абламалася.* ‖ *незак.* **абло́мвацца**, -аецца *і* **абло́млівацца**, -аецца (да 1 знач.). ‖ *наз.* **абло́м**, -у, *м.* (да 1 знач.), **абло́мванне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **абло́млліванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**АБЛАМА́ЦЬ**, -ламлю́, -ло́міш, -ло́міць; -ламі́; -ламаны; *зак.* **1.** *што.* Ломячы, аддзяліць частку, кавалак чаго-н. *А. сук. А. лёд.* **2.** *што.* Пааблломваць усё або многае. *А. сухія галінкі. А. бэз.* **3.** *перан., каго.* З цяжкасцю ўгаварыць, пераканаць, а таксама перамагчы ўпартасць і пад. (разм.). *А. яго і зрабіць паслухмяным.* ◊ **Абламаць рогі** *каму* (разм.) — уціхамірыць, утаймаваць, падпарадкаваць каго-н. ‖ *незак.* **абло́мваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **абло́мліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абло́м**, -у, *м.* (да 1 і 2 знач.), **абло́мванне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.) *і* **абло́мліванне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**АБЛАПО́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., каго-што* (разм.). Ашукаць з карыслівай мэтай, абабраць. ‖ *незак.* **аблапо́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЛАСНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* вобласць. **2.** Уласцівы якой-н. мясцовасці; дыялектны. *Абласное слова.*

**АБЛАТАШЫ́ЦЬ**, -ташу́, -то́шыш, -то́шыць; -то́шаны; *зак., што* (разм.). Хатычна абабраць, абарваць плады з дрэў, дапускаючы глум. *А. яблыкі. А. сад.*

**АБЛАХМА́ЦЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* (разм.). Стаць лахматым, абрасці барадой, валасамі. *А. за лета.*

**АБЛАЧЫ́НКА** *гл.* воблака.

**АБЛА́ШЧЫЦЬ**, -шчу, -шчыш, -шчыць; -шчаны; *зак., каго-што.* **1.** Ласкава, са спагадай абысціся з кім-н. *А. сірату.* **2.** Лашчачы, зрабіць жывёліну рахманай. *А. сабаку.* ‖ *незак.* **абла́шчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЛА́ЯЦЬ** *гл.* лаяць.

**АБЛВЫКАНКА́М**, -а, *м.* Скарачэнне: абласны выканаўчы камітэт. ‖ *прым.* **аблвыканка́маўскі**, -ая, -ае.

**АБЛЕ́ГЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які аблёг, ушчыльніўся. *А. грунт.* **2.** Які ўжо не рупіць, супакоены, сціхлы. *Яшчэ не аблеглыя пачуцці.*

**АБЛЕ́ГЧАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Больш лёгкі па вазе. *А. інструмент.* **2.** Менш складаны па сваёй будове, спосабе выканання. *Аблегчаная канструкцыя.* **3.** Які адчуў палёгку. *Аблегчана* (прысл.) *уздыхнуў.* ‖ *наз.* **абле́гчанасць**, -і, *ж.*

**АБЛЕ́ГЧЫ**, -ля́гу, -ля́жаш, -ля́жа; -ля́жам, -ля́жаце, -ля́гуць; -лёг, -ле́гла *і* -лягла́, -ляглó; -ля́ж; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Пакрыць, абвалачы, ахутаць. *Хмары аблеглі ўсё неба.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Шчыльна прылегчы да чаго-н. з усіх бакоў, абхапіць што-н. *Сукенка добра аблегла стан.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Апусціцца, панікнуць, абвяць. *Бульбоўнік аблёг ад гарачыні.* **4.** Злегчы, захварэць. *Аблегла бабуля, не ўстае.* ‖ *незак.* **абляга́ць**, -а́е (да 1—3 знач.). ‖ *наз.* **абляга́нне**, -я, *н.* (да 2 і 3 знач.).

**АБЛЕДЗЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Пакрыты лёдам. *Абледзянелыя шыбы акна.* ‖ *наз.* **абледзяне́ласць**, -і, *ж.*

**АБЛЕДЗЯНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Пакрыцца лёдам. *Самалёт абледзянеў.* ‖ *незак.* **абледзяняв́аць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абледзяне́нне**, -я, *н.*

**АБЛЕ́ЗЛЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Той (такі), у каго (якім) вылезлі валасы або поўсць ці пер'е. *А. кот.* **2.** З выцвілай фарбай, з абабітым тынкам, паліняслы. *Аблезлыя сцены. Аблезлая сукенка.* **3.** Які пачаў мяняць скуру, згарэўшы на сонцы. *А. твар.* ‖ *наз.* **абле́злaсць**, -і, *ж.*

**АБЛЕ́ЗЦІ**, -зу, -зеш, -зе; -ле́зь; *зак.* (разм.). **1.** Страціць валасы або поўсць ці пер'е, скуру; выпасці, вылезці (пра валасы, поўсць, пер'е). *Кот аблез.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Страціць першапачатковую афарбоўку, верхні слой, выліняць, выцвісці або злезці, адваліцца ад паверхні чаго-н. *Сукенка аблезла. Фарба аблезла.* **3.** Змяніць скуру, згарэўшы на сонцы. *За лета ўвесь твар аблез.* ‖ *незак.* **абла́зіць**, -ла́жу, -ла́зіш, -ла́зіць.

**АБЛЕ́ТАВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -туе; -таваны; *зак.* **1.** Астацца з зімы на лета. *Сена ў стозе аблетавала.* **2.** Праляжаўшы лета, высахнуць (пра дровы і пад.).

**АБЛЕ́ТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Маладая жывёліна, якая пералетавала. *Бычок-аблетак.* ◊ **На аблетак** (разм.) — каб аблетавала, праляжала лета (звычайна пра дровы).

**АБЛЕ́ТНІК**, -у, *м., зб.* Дровы, нарыхтаваныя вясною на зіму, якія аблетавалі, падсохлі за лета. *А. зімой добра гарыць.*

**АБЛЁТ** *гл.* аблётаць, абляцець.

**АБЛЁТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.*, **1.** *каго-што.* Лётаючы, пабываць (за кароткі час) у розных месцах (разм.). *А. горад. А. знаёмых.* **2.** *што.* Выпрабаваць у час палётаў. *А. самалёт.* ‖ *незак.* **аблётваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.). ‖ *наз.* **аблёт**, -у, *М* -лёце, *м.*

**АБЛЁТВАЦЬ** *гл.* аблётаць, абляцець.

**АБЛЁТНЫ** *гл.* абляцець.

**АБЛІВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* абліць. **2.** Водная працэдура. *Халодныя абліванні.*

**АБЛІВА́ХА**, -і, *ДМ* -ва́се, *ж.* (разм.). Зімовы дождж, які замярзае на зямлі, на дрэвах і пад.; галалёд.

**АБЛІВА́ЦЦА** *гл.* абліцца.

**АБЛІВА́ЦЬ** *гл.* абліць.

**АБЛІГА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Каштоўная папера, па якой яе ўладальніку выплачваецца даход у форме працэнтаў або выйгрышаў. ‖ *прым.* **аблігацы́йны**, -ая, -ае.

**АБЛІЗА́ЦЦА**, -ліжу́ся, -лі́жашся, -лі́жацца; -ліжы́ся; *зак.* **1.** Аблізаць сабе губы. **2.** *перан.* Выявіць пачуццё незадаволенай зайздрасці, не атрымаўшы таго, на што разлічваў. **3.** Пра жывёлу: аблізаць на сабе поўсць. ‖ *незак.* **аблі́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *аднакр.* **аблізну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся (да 1 знач.; разм.).

**АБЛІЗА́ЦЬ**, -ліжу́, -лі́жаш, -лі́жа; -ліжы́; -лі́заны; *зак., каго-што.* **1.** Правесці языком па паверхні чаго-н. *А. губы.* **2.** Ачысціць каго-, што-н. лізаннем. *А. лыжку. Кошка аблізала кацяня.* **3.** *перан.* Дакрануцца да чаго-н., прабегчы па чым-н. (пра агонь). *Языкі полымя аблізалі дровы ў коміне.* ◊ **Пальчыкі абліжаш** — пра што-н. вельмі смачнае, прыемнае. ‖ *аднакр.* **аблізну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *незак.* **аблі́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЛІ́ЗВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** *гл.* аблізацца. **2.** *перан.* Глядзець на каго-, што-н. з зайздрасцю, з жаданнем атрымаць што-н. смачнае (разм.). *Глядзі ды аблізвайся.*

**АБЛІ́К** *гл.* аблічыць.

**АБЛІ́ПКА**. У выразе: **у абліпку** (разм.) — вельмі шчыльна прылягаючы да цела (пра вопратку). *Сукенка ў абліпку.*

**АБЛІ́ПНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ліп, -пла; -ні; *зак.* **1.** Пакрыцца з усіх бакоў чым-н. ліпкім. *Калёсы абліплі глінай.* **2.** Шчыльна прыстаць, прыліпнуць на чым-н. *Пад дажджом сукенка абліпла на целе.* ‖ *незак.* **абліпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБЛІЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак., што.* Пакрыць паверхню чаго-н. слоем якога-н. матэрыялу, каб умацаваць, аздобіць яе. *А. сцены каляровай пліткай.* ‖ *незак.* **абліцо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абліцо́ўка**, -і, *ДМ* -цо́ўцы, *ж.* і **абліцо́ўванне**, -я, *н.*

**АБЛІЦО́ЎКА**, -і, *ДМ* -цо́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* абліцаваць. **2.** Каменны, драўляны, металічны і пад. слой, матэрыял, якім пакрываюць сцены, збудаванне для трываласці або ўпрыгожання. *Мармуровая а.* ‖ *прым.* **абліцо́вачны**, -ая, -ае. *Абліцовачная плітка.*

**АБЛІЦО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па абліцоўцы будынкаў і пад. ‖ *ж.* **абліцо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**АБЛІ́ЦЬ**, абалью́, абалье́ш, абалье́; абальём, абальяце́, абалью́ць *і* аблію́, абліе́ш, абліе́; абліём, абліяце́, аблію́ць; аблі́ў, -ліла́, -ліло́; аблі́; аблі́ты; *зак., каго-што.* **1.** Намачыць, разліўшы што-н. *А. настольнік супам.* **2.** Абдаць, паліць чым-н. з усіх бакоў ці зверху. *А. варам сечку.* **3.** *перан.* Ахапіць, напоўніць (святлом, пахам і пад.). *Сонца абліло двор святлом.* ◊ **Абліць граззю (памыямі)** *каго* (разм., неадабр.) — незаслужана зняважыць, абняславіць. **Як халоднай вадой абліць** — збянтэжыць, астудзіць чый-н. запал. ‖ *незак.* **абліва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **абліва́нне**, -я, *н.* ‖ *звар.* **аблі́цца**, абалью́ся, абалье́шся, абалье́цца; абальёмся, абальяце́ся, абалью́цца *і* аблію́ся, абліе́шся, абліе́цца; абліёмся, абліяце́ся, аблію́цца; аблі́ўся, -ліла́ся, -ліло́ся; аблі́ся; *незак.* **абліва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. *А. слязамі* (горка плакаць). *Сэрца кроўю абліваецца* (перан.: пра вялікае гора, пачуццё спагады да каго-н.).

**АБЛІ́ЧЧА**, -а, *н.* **1.** Знешні выгляд, сукупнасць адметных рыс каго-, чаго-н.; рысы і выраз твару. *Сціранне аблічча старой вёскі. Знаёмае а.* **2.** *перан.* Характар, духоўны склад. *Маральнае а. чалавека. Нацыянальнае а. літаратуры.*

**АБЛІ́ЧЫЦЦА**, -лічу́ся, -лі́чышся, -лі́чыцца; *зак.* Памыліцца пры падліку. *А. на пяць тысяч рублёў.* ‖ *незак.* **аблі́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБЛІ́ЧЫЦЬ**, -лічу́, -лі́чыш, -лі́чыць; -лі́чаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Недадаць, ашукаць пры падліку. *А. пакупніка.* **2.** *каго-што.* Зрабіць падлік, падлічыць што-н. (разм.). *А. расходы.* ‖ *незак.* **аблі́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **аблі́к**, -у, *м.* і **аблі́чванне**, -я, *н. Дапусціць аблік (аблічванне). Аблік (аблічванне) статкаў аленяў.*

**АБЛО́ГА**, -і, *ДМ* -ло́зе, *мн.* -і, -ло́г, *ж.* **1.** Даўно не аранае поле, пакрытае травою, дзірваном. *Узараць аблогу.* **2.** Акружэнне войскамі ўмацаванага пункта з мэтай яго захопу. *Зняць аблогу.* **3.** Акружэнне лесу з мэтай правядзення аблавы на звера. *А. мядзведзя.* ‖ *прым.* **абло́гавы**, -ая, -ае *і* **абло́жны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Абложныя землі.*

**АБЛО́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* аблога (у 1 знач.). **2.** Які пакрывае ўсё неба, зацяжны. *Абложная хмара. А. дождж.*

**АБЛО́М**, -у, *м.* **1.** Дзеянне паводле знач. дзеслова *абломваць* — *абламаць* і стан паводле знач. дзеяслова *абломвацца, абламацца.* **2.** Месца, дзе што-н. абламалася. *Па лініі аблому.*

**АБЛО́МАК**, -мка, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* **1.** Абламаны, адбіты кавалак чаго-н. *А. граніту. А. цаглянай сцяны.* **2.** *перан.* Тое, што засталося з ранейшых часоў, мінулага перыяду. *Абломкі старога свету.* ‖ *прым.* **абло́мачны**, -ая, -ае (спец.). *Абломачныя горныя пароды* (пароды, якія складаюцца з абломкаў больш старажытных горных парод).

**АБЛО́МАЎШЧЫНА**, -ы, *ж.* Агульнае слова для абазначэння грамадскага і асобаснага застою, руціны, апатыі, бязволля, ляноты, бяздзейнасці (ад імя І.Абломава, героя аднайменнага рамана рускага пісьменніка І.А. Ганчарова).

**АБЛО́МВАННЕ** *гл.* абламацца, абламаць.

**АБЛО́МВАЦЦА** *гл.* абламацца.

**АБЛО́МВАЦЬ** *гл.* абламаць.

**АБЛО́МЛІВАННЕ** *гл.* абламацца, абламаць.

**АБЛО́МЛІВАЦЦА** *гл.* абламацца.

**АБЛО́МЛІВАЦЬ** *гл.* абламаць.

**АБЛУ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які апусціўся, збіўся з правільнай жыццёвай дарогі. *А. чалавек.* **2.** Ілжывы, няправільны, памылковы. *А. шлях.* ‖ *наз.* **аблу́днасць**, -і, *ж.*

**АБЛУЗА́ЦЬ** *гл.* лузаць.

**АБЛУПІ́ЦЦА** *гл.* лупіцца.

**АБЛУПІ́ЦЬ** *гл.* лупіць[1].

**АБЛУ́ШЧЫЦЬ** *гл.* лушчыць.

**АБЛЫСЕ́ННЕ** *гл.* лысець.

**АБЛЫСЕ́ЦЬ** *гл.* лысець.

**АБЛЫ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Абматаць, апавіць, абвязаць чым-н. *А. дротам.* **2.** *перан.* Падпарадкаваць сабе. *А. павуцінай даўгоў.* **3.** *перан.* Прывабіць, прылашчыць, увесці ў зман. *А. чарамі.* ‖ *незак.* **аблы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЛЮБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., каго-што.* Выбраць сабе каго-, што-н. па гусце. *А. месца для адпачынку.* ‖ *незак.* **аблюбо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЛЯГА́ННЕ** *гл.* аблегчы.

**АБЛЯГА́ЦЬ** *гл.* аблегчы.

**АБЛЯГЧЫ́ЦЬ**, -лягчу́, -ле́гчыш, -ле́гчыць; -лягчы́ў, -чы́ла; -ле́гчаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць лягчэйшым, вызваліць ад лішняга грузу. *А. лодку.* **2.** *што.* Спрасціць, зрабіць прасцей і лягчэй. *А. канструкцыю самалёта.* **3.** *што.* Зрабіць менш цяжкім. *А. працу. А. сваё становішча.* **4.** *каго-што.* Супакоіць, утаймаваць пакуты. *А. боль.* ‖ *незак.* **аблягча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абля́гчэнне**, -я, *н.*

**АБЛЯГЧЭ́ННЕ**, -я, -*н.* **1.** *гл.* аблягчыць. **2.** Стан лёгкасці, вызвалення ад чаго-н. *Адчуць а.*

**АБЛЯМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак., што.* **1.** Абшыць па краях палоскай з іншага матэрыялу. *А. рукавы сукенкі.* **2.** *перан.* Акружыць што-н., размясціцца вакол чаго-н. *Алешнік прыгожа аблямаваў берагі возера.* ‖ *незак.* **аблямо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **аблямо́ўка**, -і, *ДМ* -мо́ўцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **аблямо́ўванне**, -я, -*н.*

**АБЛЯМО́ЎКА**, -і, *ДМ* -мо́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* аблямаваць. **2.** Матэрыял, якім аблямоўваюць; тое, што паласой акаймоўвае па краях што-н. *Рукавы з футравай аблямоўкай.* ‖ *прым.* **аблямо́вачны**, -ая, -ае.

**АБЛЯ́ПАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., чым* і *без дап.* (разм.) Апырскацца; запэцкаць сябе чым-н. *А. брудам.*

**АБЛЯ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Апырскаць, запэцкаць чым-н. *А. боты.* ‖ *незак.* **абля́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЛЯПІ́ХА**, -і, *ДМ* -ляпі́се, *ж.* Высокая калючая кустовая расліна з ядомымі кіславатымі ягадамі, а таксама самі ягады. *Варэнне з абляпіхі.* ‖ *прым.* **абляпі́хавы**, -ая, -ае. *А. алей.*

**АБЛЯПІ́ЦЦА**, -ляплю́ся, -ле́пішся, -ле́піцца; *зак., чым* (разм.). Абляпіць сябе чым-н. *А. гарчычнікамі.* ‖ *незак.* **абле́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБЛЯПІ́ЦЬ**, -ляплю́, -ле́піш, -ле́піць; -ле́плены; *зак., каго-што.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Прыстаць, прыліпнуць з усіх бакоў да каго-, чаго-н.; пакрыць усю паверхню. *Гліна абляпіла чаравікі. Мурашкі абляпілі цукар* (перан.: населі кругом). **2.** Наклейваючы, пакрыць чым-н. *А. сцены афішамі.* **3.** *перан.* Акружыць. *Дзеці абляпілі сані з усіх бакоў.* ‖ *незак.* **абле́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЛЯСІ́ЦЬ**, 1 ас. не ўжыв., -ле́сіш, -ле́сіць; -ле́сены; *зак., што* (спец.). Засадзіць лесам якую-н. плошчу, мясцовасць. *А. стэпы.* ‖ *наз.* **аблясе́нне**, -я, *н.*

**АБЛЯТА́ЦЬ** *гл.* абляцець.

**АБЛЯЦЕ́ЦЬ**, -лячу́, -ляці́ш, -ляці́ць; -ляці́м, -лецімце́, -ляця́ць; -ляці́; *зак.* **1.** *каго-што* і *вакол каго-чаго.* Праляцець вакол або збоку, абмінуўшы каго-, што-н. *А. вакол Зямлі.* **2.** *каго-што.* Лётаючы, пабываць у многіх месцах. *А. усю краіну.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан., што.* Хутка распаўсюдзіцца, зрабіцца ўсім вядомым (пра навіны, чуткі і пад.). *Горад абляцелі чуткі.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Апасці, абсыпацца (пра лісце, пялёсткі кветак і пад.). *Ліпавы цвет абляцеў.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Адваліцца, адпасці. *Тынк са сцен абляцеў.* ‖ *незак.* **аблята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **аблётваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1, 2, 4 і 5 знач.). ‖ *наз.* **аблёт**, -у, *М* -лёце, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **аблётны**, -ае, -ая (да 1 знач.; спец.).

**АБМА́ЗАЦЬ**, -ма́жу, -ма́жаш, -ма́жа; -ма́ж; -ма́заны; *зак., каго-што.* **1.** Пакрыць, намазаць якім-н. рэчывам. *А. сцены глінай.* **2.** Забрудзіць, запэцкаць. *А. рукі фарбай.* ‖ *незак.* **абма́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **абма́зацца**, -а́жуся, -а́жашся, -а́жацца; -а́жся; *незак.* **абма́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **абма́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **абма́званне**, -я, *н.*

**АБМАЗГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны; *зак., што* (разм.). Старанна абдумаць што-н. *Гэтае пытанне трэба добра а.* ‖ *незак.* **абмазго́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБМА́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* **1.** *гл.* абмазаць. **2.** Рэчыва, якім абмазана ці абмазваюць што-н. *А. на сцяне высахла і патрэскалася.* ‖ *прым.* **абма́зачны**, -ая, -ае. *А. матэрыял.*

**АБМАКА́ЦЬ** *гл.* абмокнуць.

**АБМАКНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што ў што.* Апусціць на кароткі час што-н. у якую-н. вадкасць; дакрануцца кавалачкам хлеба і пад. да солі, цукру і пад. *А. пяро ў чарніла. А. блін у смятану.* ‖ *незак.* **абма́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБМАКРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Мокры, змочаны. *Абмакрэлая вопратка.*

**АБМАКРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* Змокнуць; зрабіцца мокрым. *А., ходзячы па расе.*

**АБМАЛАЦІ́ЦЬ**, -лачу́, -ло́ціш, -ло́ціць; -ло́чаны; *зак., што.* Малоцячы, аддзяліць зерне ад калосся, саломы. *А. жыта.* ‖ *незак.* **абмало́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абмало́чванне**, -я, *н. і* **абмало́т**, -у, *М* -ло́це, *м.* ‖ *прым.* **абмало́тны**, -ая, -ае. *А. пункт.*

**АБМАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *зак., што.* **1.** Абвесці фарбай ці алоўкам што-н.; размаляваць па краях. **2.** *перан.* Ахарактарызаваць, апісаць. *А. вобраз героя.* ‖ *незак.* **абмалёўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абмалёўванне**, -я, *н. і* **абмалёўка**, -і, *ДМ* -лёўцы, *ж.*

**АБМА́Н**, -у, *м.* **1.** *гл.* абмануць. **2.** Памылковае ўяўленне аб чым-н., мана, няпраўда. ‖ *прым.* **абма́нны**, -ая, -ае.

**АБМА́НЛІВЫ**, -ая, -ае. Здольны ўвесці ў зман. *Абманлівае ўражанне.* ‖ *наз.* **абма́нлівасць**, -і, *ж.*

**АБМАНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* Памыліцца, ашукацца; расчаравацца ў кім-, чым-н. *А. ў спадзяваннях.* ‖ *незак.* **абма́нвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБМАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* **1.** Схлусіць, наўмысна сказаць каму-н. няпраўду. **2.** Увесці ў зман непраўдзівымі адносінамі, ашукаць. *А. пакупніка.* **3.** Не апраўдаць чыіх-н. спадзяванняў; не выканаць дадзеных абяцанняў, падвесці, падмануць, спакусіць. *Абяцаў быць і абмануў.* ‖ *незак.* **абма́нваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абма́н**, -у, *м. і* **абма́нванне**, -я, *н.*

**АБМА́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто абмануў або абманвае каго-н. ‖ *ж.* **абма́ншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **абма́ншчыцкі**, -ая, -ае.

**АБМАРО́ЗІЦЦА**, -ро́жуся, -ро́зішся, -ро́зіцца; *зак.* Атрымаць пашкоджанні ад марозу. ‖ *незак.* **абмаро́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБМАРО́ЗІЦЬ**, -ро́жу, -ро́зіш, -ро́зіць; -маро́зь; -ро́жаны; *зак., каго-што.* Пашкодзіць марозам, памарозіць, змарозіць. *А. вушы.* ‖ *незак.* **абмаро́жваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **абмаро́жванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **абмаражэ́нне**, -я, *н.*

**АБМАРО́ЧЫЦЬ** *гл.* марочыць.

**АБМАТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Абматаць сябе чым-н. *А. шалікам.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Абвіцца вакол чаго-н. *Вяроўка абматалася вакол слупа.* ‖ *незак.* **абмо́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБМАТА́ЦЬ**, -аю́, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Абкруціць, апавіць чым-н. некалькі разоў. *А. шыю шалікам.* ‖ *незак.* **абмо́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абмо́тванне**, -я, *н. і* **абмо́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**АБМАТЫ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Узрыхліць матыкай зямлю вакол чаго-н. *А. бульбу.*

**АБМАЎЛЯ́ЦЦА** *гл.* абмовіцца.

**АБМАХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* **1.** Махаючы чым-н., абдаць струменем паветра (звычайна для ахаладжэння). **2.** Ачысціць, змахнуць што-н., махнуўшы чым-н., скінуць. *А. пыл з паліцы. А. стол.* ‖ *незак.* **абма́хваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **абмахну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *незак.* **абма́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБМА́ЦАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Памацаць з усіх бакоў з мэтай агляду; уважліва агледзець. *Доктар абмацаў хворага.* **2.** *перан.* Знайсці, намацаць, выявіць, шукаючы; высачыць, выведаць. *А. яблыкі ў торбе. Бяда, калі абмацаюць бандыты.* ‖ *незак.* **абма́цваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБМАЧЫ́ЦЬ**, -мачу́, -мо́чыш, -мо́чыць; -мо́чаны; *зак., каго-што.* **1.** Зрабіць мокрым, намачыць. *Дождж абмачыў усяго да ніткі.* **2.** Зрабіць мокрым, абмакнуўшы ў што-н. *А. касу.* ‖ *незак.* **абмо́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **абмачы́цца**, -мачу́ся, -мо́чышся, -мо́чыцца; *незак.* **абмо́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБМЕЖАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Прыстасаванне, якое абмяжоўвае дзеянне чаго-н. *А. хуткасці. А. глыбіні.*

**АБМЕЖАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які прадугледжвае абмежаванне; накіраваны на абмежаванне. *Абмежавальныя меры.*

**АБМЕЖАВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* абмежаваць. **2.** Тое, што стрымлівае, абмяжоўвае пэўныя дзеянні, ставіць каго-, што-н. у пэўныя рамкі. *А. ў выкарыстанні выбуховых рэчываў.*

**АБМЕЖАВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Нязначны, невялікі. *Абмежаваныя грашовыя сродкі.* **2.** *перан.* Пра чалавека: неразвіты, недалёкі, адсталы. *А. чалавек.* ‖ *наз.* **абмежава́насць**, -і, *ж.*

**АБМЕЖАВА́ЦЦА**, -мяжу́юся, -мяжу́ешся, -мяжу́ецца; -мяжу́йся; *зак.* **1.** Не пайсці ў сваіх дзеяннях далей чаго-н., звесці дзейнасць да пэўнага кола пытанняў, задаволіцца чым-н. *А. дасягнутым.* **2.** Вызначыць мяжу якога-н. участка зямлі; з'явіцца мяжой чаго-н. ‖ *незак.* **абмяжо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБМЕЖАВА́ЦЬ**, -мяжу́ю, -мяжу́еш, -мяжу́е; -мяжу́й; -межава́ны; *зак., каго-што.* Паставіць у пэўныя рамкі, межы; звузіць чыю-н. сферу дзейнасці. *А. дакладчыка рэгламентам. А. правы ўвозу.* ‖ *незак.* **абмяжо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абмежава́нне**, -я, *н.*

**АБМЕ́ЖАК**, -жка, *мн.* -жкі, -жкаў, *м.* Тое, што і *ўзмежак.*

**АБМЕ́Н**, -у, *м.* **1.** *гл.* абмяняць, абмяняцца. **2.** У эканоміцы: працэс руху тавараў як форма размеркавання выбраленых грамадствам каштоўнасцей. ○ **Абмен рэчываў** — сукупнасць працэсаў, якія адбываюцца ў арганізме пры засваенні ежы.

**АБМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для абмену чаго-н.; звязаны з абменам. *А. пункт. Абменная аперацыя.*

**АБМЕ́НЬВАЦЦА** *гл.* абмяняцца.

**АБМЕ́НЬВАЦЬ** *гл.* абмяняць.

**АБМЕ́РАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -раны; *зак., каго-што.* **1.** Тое, што і *памераць* (у 1 знач.). **2.** Адмераць менш, чым трэба, ашукаць. *А. пакупніка.* ‖ *незак.* **абме́рваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **абмяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абме́р**, -у, *м. і* **абме́рванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **абме́рны**, -ая, -ае. *Абмерная вяроўка.*

**АБМЕ́РЗЛЫ**, -ая, -ае. Пакрыты лёдам, шэранню, абледзянелы. *Абмерзлыя дрэвы.*

**АБМЕ́РЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -мёрз, -ме́рзла; -ні; *зак.* Пакрыцца лёдам, шэранню, абледзянець. *Дарога абмерзла.* ‖ *незак.* **абмярза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБМЕРКА́ВАЦЬ**, -мярку́ю, -мярку́еш, -мярку́е; -мярку́й; -меркава́ны; *зак., што.* Калектыўна абгаварыць што-н., прааналізаваць, абдумаць і зрабіць вывады. *А. даклад. А. новы праект статута.* ‖ *незак.* **абмяркó́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абмяркó́ўванне**, -я, *н. і* **абмеркава́нне**, -я, *н.*

**АБМЕ́РЦІ**, абамру́, абамрэ́ш, абамрэ́; абамрóм, абамрацé, абамру́ць; абмёр, -ме́рла; абамры́; *зак.* (разм.). **1.** Самлець, страціць прытомнасць. **2.** Знямець ад нечаканага і моцнага ўзрушэння. *А. ад страху.* ‖ *незак.* **абміра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **абміра́нне**, -я, *н.*

**АБМЕ́СЦІ**, -мя́ту, -мяце́ш, -мя́це; -мяцём, -мецяце́, -мяту́ць; -мёў, -мяла́, -мяло́; -мяці́; -ме́цены; *зак., каго-што.* Змятаючы, змахваючы, ачысціць ад пылу, снегу і пад. *А. венікам валёнкі.* ‖ *незак.* **абмята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБМЕ́ШВАННЕ** *гл.* абмяшаць.

**АБМЕ́ШВАЦЬ** *гл.* абмяшаць.

**АБМЕ́ШКА** *гл.* абмяшаць.

**АБМІНА́ННЕ** *гл.* абмяць.

**АБМІНА́ЦЬ**[1] *гл.* абмінуць.

**АБМІНА́ЦЬ**[2] *гл.* абмяць.

**АБМІНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* **1.** Прайсці, праехаць міма каго-, чаго-н. *А. вёску.* **2.** Рухаючыся хутчэй, абагнаць каго-, што-н. *А. пешахода.* **3.** Не зачапіць, не закрануць. *Куля мяне абмінула.* **4.** *перан.* Пазбегнуць, унікнуць чаго-н. (часцей з адмоўем); прапусціць, не звярнуць увагі на што-н. *Злачынцу не а. кары.* ‖ *незак.* **абміна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБМО́ВІЦЦА**, -мо́ўлюся, -мо́вішся, -мо́віцца; *зак.* **1.** Агаварыцца, сказаць не тое, што трэба. **2.** Нечакана прыгадаць што-н.; між іншым сказаць тое, пра што не варта было ўпамінаць. ◊ **Не абмовіцца (ні адным) словам** (разм.) — нічога не сказаць, змоўчаць. ‖ *незак.* **абмаўля́цца**, -ля́юся, -ля́ешся, -ля́ецца.

**АБМО́КЛЫ**, -ая, -ае. Змакрэлы, мокры. *А. армяк.*

**АБМО́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -мóк, -кла; абмóкні; *зак.* Стаць мокрым, змокнуць. *А. на дажджы.* ‖ *незак.* **абмака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБМО́ТВАННЕ** *гл.* абматаць.

**АБМО́ТВАЦЦА** *гл.* абматацца.

**АБМО́ТВАЦЬ** *гл.* абматаць.

**АБМО́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** *гл.* абматаць. **2.** Тое, чым абматана што-н. (спец.). *Ізаляцыйная а.* **3.** звычайна *мн.* Доўгія палосы матэрыі для абмотвання ног ад чаравікаў да кален. *Салдацкія абмоткі.* ‖ *прым.* **абмо́тачны**, -ая, -ае.

**АБМО́ЧВАЦЦА** *гл.* абмачыць.

**АБМО́ЧВАЦЬ** *гл.* абмачыць.

**АБМУ́ЛЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; -яны; *зак., што.* Пашкодзіць скуру трэннем, нацерці. *А. ногі.* ‖ *незак.* **абму́львацъ**, -аю, -аеш, -ае.

**АБМУНДЗІРАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* абмундзіраваць. **2.** Камплект ваеннага форменнага адзення. *Афіцэрскае а.*

**АБМУНДЗІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго-што.* Забяспечыць абмундзіраваннем (у 2 знач.). *А. армію.* ‖ *незак.* **абмундзіро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **абмундзірава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *звар.* **абмундзіро́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **абмундзірава́нне**, -я, *н. і* **абмундзіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* (разм.). ‖ *прым.* **абмундзіро́вачны**, -ая, -ае.

**АБМУНДЗІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* (разм.). **1.** *гл.* абмундзіраваць. **2.** Тое, што і *абмундзіраванне. Летняя а.* ‖ *прым.* **абмундзіро́вачны**, -ая, -ае.

**АБМУРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Абкласці цэглай, каменнем што-н., замацоўваючы цэментам, глінай і пад. *А. касцёл.* ‖ *незак.* **абмуро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абмуро́ўванне**, -я, *н. і* **абмуро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**АБМУРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* (спец.). **1.** *гл.* абмураваць. **2.** Тое, чым што-н. абмуравана. *Цагляная а. катла.* ‖ *прым.* **абмуро́вачны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**АБМЫВА́ЦЬ** *гл.* абмыць.

**АБМЫ́ЦЬ**, -мы́ю, -мы́еш, -мы́е; -мы́ты; *зак., каго-што.* **1.** Змыць пыл, бруд, зрабіць чыстым. *А. ногі. А. дзіця.* **2.** Памыць бялізну ўсім, многім. *А. сям'ю.* **3.** *перан.* Адзначыць якую-н. падзею выпіўкай (разм.). *А. новую кватэру. А. прэмію.* ‖ *незак.* **абмыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **абмы́цца**, -мы́юся, -мы́ешся, -мы́ецца (да 1 знач.); *незак.* **абмыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (да 1 знач.). ‖ *наз.* **абмыва́нне**, -я, *н.*

**АБМЯЖО́ЎВАЦЦА** *гл.* абмежавацца.

**АБМЯЖО́ЎВАЦЬ** *гл.* абмежаваць.

**АБМЯ́КЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які страціў першапачатковую цвёрдасць, пругкасць; зрабіўся вялым, расслабленым. *А. хлеб.* **2.** *перан.* Пра чалавека, характар, які стаў больш мяккім. *Суровы гаспадар ад пахвалы зрабіўся абмяклым.* ‖ *наз.* **абмя́класць**, -і, *ж.*

**АБМЯ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -мя́к, -кла; -ні; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Зрабіцца мяккім, рыхлым. *Хлеб ад вільгаці абмяк.* **2.** Стаць больш мяккім, спагадлівым, лагодным пад уплывам чаго-н. (разм.). *Крыклівая жанчына неяк абмякла і заплакала.* ‖ *незак.* **абмяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБМЯЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які абмялеў, зрабіўся мелкім. *Абмялелая затока.*

**АБМЯЛЕ́ЦЬ** *гл.* мялець.

**АБМЯНЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* **1.** Зрабіць абмен, памяняцца кім-, чым-н. *А. кватэрамі.* **2.** Выпадкова памяняцца якімі-н. рэчамі. *А. шапкамі ў гардэробе.* **3.** *перан.* Адказаць на якое-н. дзеянне такім самым дзеяннем (адпаведна значэнню назоўніка); падзяліцца з кім-н. сваімі думкамі і выслухаць думкі, погляды субяседніка. *А. прамовамі. А. вопытам.* ‖ *незак.* **абме́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **абме́н**, -у, *м.*

**АБМЯНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -ме́нены; *зак., каго-што.* **1.** Аддаць адно што-н. і атрымаць замест яго другое такой жа ці інш. вартасці. *А. кніжку ў бібліятэцы.* **2.** Памылкова ці наўмысна ўзяць чужую рэч замест сваёй. *У гардэробе абмянялі паліто.* ‖ *незак.* **абме́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абме́н**, -у, *м.* ‖ *прым.* **абме́нны**, -ая, -ае.

**АБМЯРА́ЦЬ** *гл.* абмераць.

**АБМЯРЗА́ЦЬ** *гл.* абмерзнуць.

**АБМЯРКО́ЎВАННЕ** *гл.* абмеркаваць.

**АБМЯРКО́ЎВАЦЬ** *гл.* абмеркаваць.

**АБМЯРЦВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які страціў адчувальнасць, зрабіўся нежывым (пра клеткі, тканкі, часткі цела). *Абмярцвелыя ногі.* **2.** *перан.* Нерухомы, застылы. *А. ад страху твар.* ‖ *наз.* **абмярцве́ласць**, -і, *ж.*

**АБМЯРЦВЕ́ЦЬ** *гл.* мярцвець.

**АБМЯТА́ЦЬ** *гл.* абмесці.

**АБМЯ́ЦЬ**, абамну́, абамне́ш, абамне́; абамнём, абамняце́, абамну́ць; абамні́; абмя́ты; *зак., што.* Прымяць, прыціснуць зверху, зрабіць шчыльнейшым. *А. салому.* ‖ *незак.* **абміна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абміна́нне**, -я, *н.*

**АБМЯША́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Прыправіць корм (сечку, мякіну, ахрап'е) мукою, бульбай. *А. сечку карове.* ‖ *незак.* **абме́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абме́шванне**, -я, *н. і* **абме́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.*

**АБНАВІ́ЦЦА**, -наўлю́ся, -но́вішся, -но́віцца; *зак.* **1.** Стаць новым, абноўленым; набыць выгляд новага. *Свет абнавіўся.* **2.** Папоўніцца чымсьці новым, змяніцца. *Рэпертуар тэатра абнавіўся. Абнавіўся склад рэдкалегіі.* **3.** *перан.* Зноў зрабіцца свежым, моцным; ажывіцца. *Цела нібы абнавілася, такое яно стала моцнае.* ‖ *незак.* **абнаўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **абнаўле́нне**, -я, *н.*

**АБНАВІ́ЦЬ**, -наўлю́, -но́віш, -но́віць; -но́ўлены; *зак.* **1.** *што.* Замяніць устарэлае (або папоўніць) чым-н. новым. *А. рэпертуар.* **2.** *каго-што.* Надаць чаму-н. новы выгляд, паднавіць. *А. мэблю.* **3.** *што.* Упершыню ўжыць, выкарыстаць новую рэч (разм.). *А. набытае паліто.* ‖ *незак.* **абнаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **абнаўле́нне**, -я, *н.*

**АБНАДЗЕ́ІЦЬ**, -дзе́ю, -дзе́іш, -дзе́іць; -дзе́ены; *зак., каго (што).* Супакоіць, абу-

дзіўшы надзею, суцешыць. *А. цяжкахворага.* ‖ *незак.* **абнадзе́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБНАРО́ДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны; *зак., што.* Абвясціць, апублікаваць для ўсеагульнага азнаямлення. *А. указ.* ‖ *наз.* **абнаро́даванне**, -я, *н.*

**АБНАСЕ́НІЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніць; -нены; *зак., што* (спец.). Засеяць насеннем ніву, зямлю. *Лісцёвыя пароды абнасенілі ўчастак лесу.* ‖ *незак.* **абнасе́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБНАСІ́ЦЦА**, -нашу́ся, -но́сішся, -но́сіцца; *зак.* (разм.). **1.** Знасіць усё сваё адзенне, увесь абутак. *А. за гады вучобы.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Ад нашэння стаць зручным, прывычным. *Боты абнасіліся, не ціснуць.* ‖ *незак.* **абно́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБНАСІ́ЦЬ**, -нашу́, -но́сіш, -но́сіць; -но́шаны; *зак., што* (разм.). Панасіўшы адзенне, абутак, зрабіць яго зручным, прывычным. *А. новыя чаравікі.* ‖ *незак.* **абно́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБНЕМАГЧЫ́**, -немагу́, -нямо́жаш, -нямо́жа; -нямо́г, -немагла́, -ло́; -немажы́; *зак.* (разм.). Страціць здароўе, сілы, абнядужаць. *Абнемагла жанчына.* ‖ *незак.* **абнемага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБНЕ́СЦІ**, -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; -нясём, -несяце́, -нясу́ць; -нёс, -не́сла; -нясі́; -не́сены; *зак.* **1.** *каго-што.* Пранесці каго-, што-н. вакол каго-, чаго-н. *А. вакол стала.* **2.** *што* і *чым.* Абгарадзіць, акружыць сцяною і пад. *А. сад парканам.* **3.** *каго (што).* Падыходзячы да кожнага, пачаставаць. *А. ўсіх пачастункамі.* **4.** *каго (што).* Частуючы, прапусціць каго-н. *А. свата за сталом.* ‖ *незак.* **абно́сіць**, -но́шу, -но́сіш, -но́сіць.

**АБНІМА́ЦЦА** *гл.* абняцца.

**АБНІМА́ЦЬ** *гл.* абняць.

**АБНІ́МКІ**, -аў. Тое, што і *абдымкі. А. сяброў.*

**АБНО́СКІ**, -аў, *адз.* абно́сак, -ска, *м.* (разм.). Падношанае кім-н. адзенне, абутак; рыззё. *Хадзіць у абносках. Насіць чужыя а.*

**АБНО́ЎКА**, -і, *ДМ* -но́ўцы, *мн.* -і, -но́вак, *ж.* (разм.). Новая, нядаўна набытая рэч (звычайна адзенне, абутак). *Надзець абноўку.*

**АБНО́ШВАЦЦА** *гл.* абнасіцца.

**АБНО́ШВАЦЬ** *гл.* абнасіць.

**АБНЮ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Панюхаць з усіх бакоў. *Мядзведзь абнюхаў барсукову нару і пайшоў.* **2.** Знайсці, нюхаючы; знюхаць. *Сабака абнюхаў след.* **3.** *перан., разм.* Агледзець, выведаць. *Суседка ўсё абнюхала.* ‖ *незак.* **абню́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБНЯДУ́ЖАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Страціць сілы, здароўе, аслабець. *Абнядужаў дзед.* ‖ *незак.* **абняду́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБНЯСЛА́ВІЦЬ**, -ла́ўлю, -ла́віш, -ла́віць; -ла́ўлены; *зак., каго-што.* Распаўсюдзіць нядобрую славу пра каго-, што-н.; зганьбіць. *А. чалавека.* ‖ *незак.* **абнеслаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **абнясла́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* (дзеянне) **абнеслаўле́нне**, -я, *н.*, **абнясла́ўліванне**, -я, *н. і* (стан) **абнясла́ўленне**, -я, *н.*

**АБНЯ́ЦЦА**, абніму́ся, абні́мешся, абні́мецца *і* (радзей) абдыму́ся, абды́мешся, абды́мецца; абня́ўся, -няла́ся, -ло́ся; абніміся *і* (радзей) абдыміся; *зак.* Абняць адзін аднаго. *А. пры сустрэчы.* ‖ *незак.* **абніма́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* (радзей) **абдыма́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБНЯ́ЦЬ**, абніму́, абні́меш, абні́ме *і* абдыму́, абды́меш, абды́ме; абня́ў, -няла́, -ло́; абнімі́ *і* абдымі́; абня́ты; *зак., каго-што.* **1.** Ласкава абхапіць рукамі каго-, што-н. для выражэння сардэчных адносін. *Маці пяшчотна абняла сына.* **2.** Акінуць, ахапіць позіркам. *Не а. вачамі прасторы палёў.* **3.** *перан.* Акружыць з розных бакоў. *Маладыя рабіны абнялі сядзібу. Пажар абняў сяло.* **4.** *перан.* Ахапіць, авалодаць (пра пачуцці). *Лясны спакой абняў душу лагодай.* ◊ **(Як) вокам (позіркам) абняць** (разм.) — вельмі далёкі, як толькі можна ўбачыць. ‖ *незак.* **абніма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **абдыма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБО́**, *злуч.* **1.** *размеркавальны.* Ужыв. для супастаўлення членаў сказа і сказаў з узаемным выключэннем, паказваючы на катэгарычнасць выбару аднаго з іх. *Або заўтра, або паслязаўтра. Або пан, або прапаў* (прыказка). *Пашукай на паліцы або ў шафе. Дрыгва зацягне кожнага, хто аступіцца або зробіць неасцярожны крок.* **2.** *пералічальна-размеркавальны.* Аб'ядноўвае члены сказа і сказы пры пералічэнні. *Каго ты ні вазьмі, дык гэта або матэматык, або фізік, або хімік.* **3.** *далучальны.* Ужыв. для злучэння розных назваў аднаго і таго ж паняцця, для паяснення, у знач. іншымі словамі, гэта значыць. *Берагавыя ластаўкі, або беражанкі, спрытна лятаі над вадой.* **4.** *у знач. пыт. часц.* Ужыв. ў пачатку пытальных сказаў у знач. хіба?, няўжо? (разм.). *Або ты не ведаеш пра гэта?*

**АБО́ДВА**, або́двух, *Т* або́двума, *м.* і *н.;* абе́дзве, абе́дзвюх, *Т* абе́дзвюма, *ж., ліч. зб.* Як той, так і другі. *А. сыны служаць у арміі. Абедзве дачкі вучацца.*

**АБО́ДДЗЕ**, -я, *н., зб.* Абады. *Гнуць а.*

**АБО́ДНЫ** *гл.* вобад.

**АБО́Е**, абаіх, *ліч. зб.* Як той, так і другі; як той, так і другая; як тое, так і другое. *Жонка мужу нешта шэпча і а. выходзяць.* ◊ **Абое рабое** (разм., неадабр.) — пра людзей, падобных у чым-н., вартых адзін аднаго (па якіх-н. адмоўных якасцях).

**АБО́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Некалькі фурманак, падвод з людзьмі або грузам, якія едуць адна за другой. *Абозы з раненымі. А. з фуражом.* **2.** Сукупнасць транспартных сродкаў спецыяльнага прызначэння. *Пажарны а.* ◊ **Плесціся ў абозе** (разм.) — цягнуцца ў хвасце, адставаць ад усіх. ‖ *прым.* **або́зны**, -ая, -ае.

**АБО́ЗНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Абозны возчык, фурман. **2.** Ваеннаслужачы абозных часцей (разм.). **3.** *перан.* Той, хто адстае, пляцецца ў хвасце (разм.). *Раўняцца па перадавіках, а не па абозніках.*

**АБО́ЗНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Халодная будыніна, дзе знаходзяцца калёсы, сані і пад. *На зіму калёсы паставілі ў абозню.*

**АБО́І**, -яў. Тое, што і *шпалеры.* ‖ *прым.* **або́йны**, -ая, -ае. *Абойная фабрыка.*

**АБО́ЙМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Металічная рамка для патронаў, якая ўстаўляецца ў магазінную каробку агнястрэльнай зброі; колькасць патронаў у такой рамцы. *А. патронаў.* **2.** Скаба, абруч і пад., якія служаць для замацавання частак машын, збудаванняў і пад. (спец.). *Жалезабетонная а.* **3.** *перан.* Шэраг, набор чаго-н. (пра тое, што з'яўляецца адно за адным; разм., часцей неадабр.). *Цэлая а. аргументаў.*

**АБО́ЙМЫ**, -аў. Абрамленне, акружэнне. *Азёры ў пышных абоймах лазы.*

**АБО́ЙШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Майстар, спецыяліст па абіўцы мэблі, дзвярэй.

**АБО́ЛТУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., лаянк.). Нядбайнік, гультай, дурань; невук.

**АБО́РА**[1], -ы, *мн.* -ы, або́р, *ж.* (уст.) Тонкія вяровачкі ў лапцях, якімі абмотваюцца анучы. *Развязаліся аборы.* ◊ **Аборай хлеб кроіць** (разм.) — пра некультурнага, нязграбнага чалавека. ‖ *прым.* **або́рачны**, -ая, -ае.

**АБО́РА**[2], -ы, *мн.* -ы, або́р, *ж.* (уст.). Хлеў для кароў, кароўнік.

**АБО́РКА**[1], -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Невялікая, тонкая вяровачка; шпагаціна. *Перавязаць пакунак аборкай.*

**АБО́РКА**[2], -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Палоска матэрыі, прышытая складкамі ці зборкамі на адзенні. *Сукенка з аборкамі.*

**АБО́РКА**[3], -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (спец.). Размяшчэнне ўкарочаных радкоў тэксту вакол нешырокага малюнка, табліцы і пад. *Тэкст у аборку.*

**АБО́РТ**, -у, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дачаснае адвольнае або штучнае наўмыснае спыненне цяжарнасці, спарон.

**АБО́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ўбаку ад дарогі. *Ішлі абочнымі сцежкамі.*

**АБО́ЧЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -чын, *ж.* Бакавая частка дарогі, ускраіна чаго-н. і пад. *З'ехаць на абочыну.*

**АБПА́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Абпаленае месца. *Сасна з абпалінай.*

**АБПАЛІ́ЦЬ**, -палю́, -па́ліш, -па́ліць; -па́лены; *зак., што.* **1.** Прымусіць абгарэць, абвугліцца з усіх бакоў. *Маланка абпаліла ствол елкі.* **2.** Апрацаваць выраб з гліны і пад. агнём. *А. гаршкі.* ‖ *незак.* **абпа́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абпа́льванне**, -я, *н. і* **абпа́л**, -у, *м.* (да 2 знач.; спец.). *Абпал цэглы.*

**АБПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які служыць для апрацоўкі агнём, тэмпературай, прызначаны для абпальвання. *Абпальныя печы.*

**АБПА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па абпальванні. *А. ванны.* ‖ *ж.* **абпа́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**АБПАЎЗЦІ́**, -паўзу́, -паўзе́ш, -паўзе́; -паўзём, -паўзяце́, -паўзу́ць; -по́ўз, -паўзла́, -ло́; -паўзі́; *зак., каго-што.* Прапаўзці вакол ці міма каго-, чаго-н. *Мурашкі абпаўзлі перашкоду.* ‖ *незак.* **абпаўза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБПІЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак., што.* Тое, што і *апілаваць. А. бервяно.* ‖ *незак.* **абпіло́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абпіло́ўванне**, -я, *н.* *і* **абпіло́ўка**, -і, *ДМ* -ло́ўцы, *ж.*

**АБПЛА́ВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Плаваючы, пабываць усюды, у розных месцах. *А. усе моры і акіяны.*

**АБПЛЕ́СЦІ**, -ляту́, -ляце́ш, -ляце́; -ляцём, -лецяце́, -лятуць; -лёў, -ляла́, -ло́; -ляці́; -ле́цены; *зак., каго-што.* Тое, што і *аплесці.* ‖ *незак.* **абплята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБПЛЫ́СЦІ** *і* **АБПЛЫ́ЦЬ**, -лыву́, -лыве́ш, -лыве́; -лывём, -лывяце́, -лыву́ць; -лы́ў, -лыла́, -ло́; *зак., каго-што.* Праплысці міма ці вакол каго-, чаго-н. *А. скалу.* ‖ *незак.* **абплыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБПО́ЎЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Поўзаючы, пабываць у розных месцах. *Дзіця абпоўзала ўвесь пакой.* ‖ *незак.* **абпо́ўзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБПРАМЕ́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* Падвергнуцца ўздзеянню якіх-н. прамянёў.

**АБПРАМЕ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што.* Накіраваць на каго-, што-н. прамені, падвергнуць уздзеянню якіх-н. прамянёў. ‖ *незак.* **абпраме́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абпраме́ньванне**, -я, *н.* *і* **абпрамяне́нне**, -я, *н.* *Радыеактыўнае а.*

**АБПЫ́РСКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Тое, што і *апырскаць.* ‖ *незак.* **абпы́рскваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **абпы́рснуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *звар.* **абпы́рскацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **абпы́рсквацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБПЯ́ЧЫ**, -пяку́, -пячэ́ш, -пячэ́; -пячо́м, -печаце́, -пяку́ць; -пёк, -пякла́, -ло́; -пячы́; -пе́чаны; *зак., каго-што.* Тое, што і *апячы.* ‖ *незак.* **абпяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБПЯЧЫ́СЯ**, -пяку́ся, -пячэ́шся, -пячэ́цца; -пячо́мся, -печаце́ся, -пяку́цца; -пёкся, -пякла́ся, -ло́ся; -пячы́ся; *зак.* Тое, што і *апячыся.* ‖ *незак.* **абпяка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБРАБАВА́ННЕ** *гл.* рабаваць.

**АБРАБАВА́ЦЬ** *гл.* рабаваць.

**АБРАБІ́ЦЬ**, -раблю́, -ро́біш, -ро́біць; -ро́блены; *зак.* **1.** *што.* Апрацаваць, дагледзець. *А. зямлю.* **2.** *што.* Апрацоўваючы, прыдаць чаму-н. патрэбны выгляд, якасць. *А. каштоўны камень.* **3.** *каго-што.* Запэцкаць, забрудзіць чым-н. (разм.). *А. кашулю.* ‖ *незак.* **абрабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АБРА́Д**, -у, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сукупнасць строга акрэсленых дзеянняў, якімі суправаждаецца выкананне рэлігійных рытуалаў або бытавых традыцый. *А. хрышчэння. Вясельны а.* ‖ *прым.* **абра́давы**, -ая, -ае *і* **абра́дны**, -ая, -ае.

**АБРА́ДАВАЦЦА** *гл.* радавацца.

**АБРА́ДАВАЦЬ** *гл.* радаваць.

**АБРАДЗІ́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *абрадзіцца.*

**АБРАДЗІ́ЦЦА**, -раджу́ся, -ро́дзішся, -ро́дзіцца; *зак.* (разм.). Нарадзіць. *Абрадзілася маладзіца.*

**АБРА́ДНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Сістэма абрадаў. *Зімовая народная а.* **2.** Абрадавы звычай. *Выконваць усе абраднасці.*

**АБРАЖА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто абражае каго-н. ‖ *ж.* **абража́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**АБРА́З**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Выява Бога, святога або падзей іх жыцця як прадмет рэлігійнага пакланення вернікаў. *У хаце на покуці віселі абразы.* ‖ *памянш.* **абразо́к**, -зка́, *мн.* -зкі́, -зко́ў, *м.*

**АБРА́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, абра́з, *ж.* **1.** *гл.* абразіць. **2.** Абразлівае слова, абразлівы ўчынак. *Цяжкая а.*

**АБРАЗА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* абрэзаць. **2.** Рэлігійны абрад у яўрэяў і мусульман, звязаны з выдаленнем крайняй плоці ў хлопчыкаў.

**АБРАЗА́ЦЦА** *гл.* абрэзацца.

**АБРАЗА́ЦЬ** *гл.* абрэзаць.

**АБРАЗІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -зі́н, *ж.* (разм., лаянк.). Агідны, брыдкі твар, а таксама благі чалавек.

**АБРА́ЗІЦЦА**, -ра́жуся, -ра́зішся, -разіцца; -ра́зься; *зак.* Адчуць сябе абражаным, зняважаным, моцна пакрыўдзіцца. ‖ *незак.* **абража́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБРА́ЗІЦЬ**, -ра́жу, -ра́зіш, -ра́зіць; -ра́зь; -ра́жаны; *зак., каго-што.* Пакрыўдзіць, моцна ўнізіць. *А. словам. А. дзеяннем.* ‖ *незак.* **абража́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абра́за**, -ы, *ж.*

**АБРАЗКІ́**, -о́ў, *адз.* -зо́к, -зка́, *м.* (спец.). Жанр лірычных мініяцюр у беларускай прозе, у якіх адлюстроўваецца ўнутраны свет чалавека. ‖ *прым.* **абразко́вы**, -ая, -ае.

**АБРА́ЗЛІВЫ**, -ая, -ае. Такі, які нясе ў сабе абразу. *Абразлівыя словы.* ‖ *наз.* **абра́злівасць**, -і, *ж.*

**АБРАЗУ́МІЦЦА**, -млюся, -мішся, -міцца; -мся; *зак.* Абдумацца, стаць разважлівым. *З гадамі абразумілася.*

**АБРАЗУ́МІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -зум; -млены; *зак., каго* (разм.). Перакanaць, прымусіць абдумацца. *А. дурасліўца.*

**АБРАКАДА́БРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (кніжн.). **1.** Лацінскае магічнае слова, заклінанне супраць хвароб. **2.** Незразумелае слова ці бяссэнсавы, незразумелы набор слоў, бязглуздзіца.

**АБРАМІ́ЗІЦЦА** *гл.* рамізіцца.

**АБРА́МІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак., што* (спец.). **1.** Уставіць у раму. *А. партрэт.* **2.** *перан.* Акружыць сабой што-н., размяшчацца вакол чаго-н., акружаючы як рамкай. **3.** *спец.* Уводзіць абрамленне ў мастацкі твор; служыць абрамленнем у мастацкім творы. ‖ *незак.* **абрамля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **абрамле́нне**, -я, *н.*

**АБРАМЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* абраміць. **2.** Устаўленае што-н. у рамку; што-н. акружанае. *Прыгожае а. партрэта.*

**АБРА́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (высок.). **1.** Той, хто абраны кім-н. для выканання якіх-н. абавязкаў. *Дэпутаты — абраннікі народа.* **2.** *перан.* Незвычайна здольны, асаблівы чалавек. *А. лёсу.* **3.** Любімы чалавек, каханак. *А. сэрца.* ‖ *ж.* **абра́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **абра́нніцкі**, -ая, -ае.

**АБРАСЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Мокры ад расы, пакрыты расою. *А. куст.*

**АБРАСІ́ЦЬ**, -рашу́, -ро́сіш, -ро́сіць; -ро́шаны; *зак., што.* **1.** Змачыць кроплямі расы. *А. ногі.* **2.** Увільгатніць, пакрыць кроплямі вадкасці. *Дождж ык вясновы абрасіў зямлю.* ‖ *незак.* **абро́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБРАСЦІ́**, -сту́, -сце́ш, -сце́; -сцём, -сцяце́, -сту́ць; -ро́с, -расла́, -ло́; *зак., чым.* **1.** Зарасці, пакрыцца якой-н. раслiннасцю, валасамі, слоем чаго-н. *А. мохам* (таксама перан.: апусціцца, адзічэць; разм.). *А. барадой. А. тлушчам. А. граззю* (перан.: стаць неахайным, брудным; разм.). **2.** *перан.* Набыць многа ўсяго, стварыць што-н. вакол сябе, каля сябе (разм.). *А. гаспадаркай. Вуліца абрасла новымі дамамі.* ‖ *незак.* **абраста́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абраста́нне**, -я, *н.*

**АБРАЎНАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ну́ецца; *зак.* Зрабіцца роўным, гладкім; выраўняцца (аб краях, паверхні чаго-н.). *Свежы насып абраўнаваўся пад коламі машын.* ‖ *незак.* **абраўно́ўвацца**, -аецца.

**АБРАЎНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* Зрабіць роўным, гладкім (край, паверхню чаго-н.). *А. грады.* ‖ *незак.* **абраўно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **абраўно́ўванне**, -я, *н.*

**АБРА́ЦЬ**, абяру́, абярэ́ш, абярэ́; абяро́м, аберацé, абяру́ць; абяры́; абра́ны; *зак., каго-што.* Тое, што і *выбраць. А. дэпутата.* ‖ *незак.* **абіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абра́нне**, -я, *н.*

**АБРАШЭ́ЦІЦЬ**, -шэ́чу, -шэ́ціш, -шэ́ціць; -шэ́чаны; *зак., што.* Зрабіць рашотку на чым-н. *А. акно.* ‖ *незак.* **абрашэ́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абрашэ́чванне**, -я, *н.*

**АБРО́К**[1], -у, *м.* (гіст.). У час прыгону: натуральны або грашовы падатак, які спаганяўся памешчыкамі з сялян; чынш. *Збіраць а.* ‖ *прым.* **абро́чны**, -ая, -ае. *А. селянін* (які плаціць аброк).

**АБРО́К**[2], -у, *м.* Корм для коней, звычайна авёс. *Не даўшы аброку, не бі кіем па боку* (прыказка). ‖ *прым.* **абро́чны**, -ая, -ае. *Аброчная торба.*

**АБРО́СЛЫ**, -ая, -ае. Які зарос; пакрыўся раслiннасцю, валасамі, шчаціннем. *Аброслая алешнікам канава. Аброслыя шчокі.*

**АБРО́ЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Прадмет вупражы, які надзяваецца каню на галаву. *Трымаць каня за а. Трымаць на аброці* (перан.: у строгасці, у паслушэнстве). ‖ *прым.* **абро́цевы**, -ая, -ае.

**АБРО́ШВАЦЬ** *гл.* абрасіць.

**АБРУ́БАК**, -бка, *мн.* -бкі, -бкаў, *м.* **1.** Адсечаная частка дрэва, палена і пад. **2.** Тое, ад чаго адсечана якая-н. частка. *А. хваста.* ‖ *прым.* **абру́бачны**, -ая, -ае.

**АБРУБІ́ЦЬ**[1], -рублю́, -ру́біш, -ру́біць; -ру́блены; *зак., што.* Адсячы частку чаго-н., падкарочваючы, падраўноўваючы. *А. жэрдку.* ‖ *незак.* **абру́бліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абру́бліванне**, -я, *н. і* **абру́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *ж.*

**АБРУБІ́ЦЬ**[2], -рублю́, -ру́біш, -ру́біць; -ру́блены; *зак., што.* Падрубіць, падшыць, загнуўшы край чаго-н. *А. хусцінку.* ‖ *незак.* **абру́бліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абру́бліванне**, -я, *н.*

**АБРУ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кавалак тканіны спецыяльнага вырабу, якім засцілаюць стол; настольнік. *Кужэльны а.* ‖ *прым.* **абру́сны**, -ая, -ае *і* **абру́савы**, -ая, -ае. *Абруснае палатно.*

**АБРУСЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў рускім па мове, звычаях, культуры. ‖ *наз.* **абру́селасць**, -і, *ж.*

**АБРУСЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Зрабіцца рускім па мове, звычаях, культуры. ‖ *наз.* **абрусе́нне**, -я, *н.*

**АБРУ́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Вузкі драўляны ці металічны вобад, які набіваецца на бочку, кадушку і пад. для змацавання клёпак. **2.** Сагнутая ў кольца пласціна (або стрыжань, прут і пад.). *Гімнастычны а.* **3.** Упрыгожанне, якое надзяецца на галаву. *Залаты а.* ‖ *прым.* **абру́чны**, -ая, -ае.

**АБРУ́ШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *зак.* **1.** *гл.* рушыцца. **2.** *перан., на каго-што.* Імкліва напасці. *А. з пагрозамі. А. на ворага.* ‖ *незак.* **абру́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 2 знач.). ‖ *наз.* **абруше́нне**, -я, *н.*

**АБРУ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., што.* **1.** *гл.* рушыць. **2.** *перан., на каго-што.* Накіраваць усю сілу пачуццяў, клопатаў і пад. *А. лютасць на ворага.* ‖ *незак.* **абру́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБРЫ́ВАК**, -ры́ўка, *мн.* -ры́ўкі, -ры́ўкаў, *м.* Адарваны кавалак, частка чаго-н. *А. паперы. А. калючага дроту. Абрыўкі ўспамінаў* (перан.). ‖ *прым.* **абры́вачны**, -ая, -ае.

**АБРЫВА́ЦЦА** *гл.* абарвацца.

**АБРЫВА́ЦЬ**[1] *гл.* абарваць[1].

**АБРЫВА́ЦЬ**[2] *гл.* абарваць[2].

**АБРЫ́ВІСТЫ**, -ая, -ае. Круты, з абрывамі. *А. бераг.* ‖ *наз.* **абры́вістасць**, -і, *ж.*

**АБРЫ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Тое, што і *абрыдзець. Яму абрыдла праца.* ‖ *незак.* **абры́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБРЫ́ДЗЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; абры́дзеў, -дзела *і* абры́д, -дла; *зак.* Надакучыць, апрацівець, апрыкрыць, прыесціся.

**АБРЫ́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Надакучлівы. *Абрыдлівая імжа.*

**АБРЫ́ДЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які абрыдзеў, надакучлівы. *А. халодны дождж.*

**АБРЫ́ДНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; абры́днуў, -нула *і* абры́д, -дла; абры́дні; *зак.* (разм.). Тое, што і *абрыдзець. Хлеб ніколі не абрыдне.*

**АБРЫ́ЗГЛЫ**, -ая, -ае. Пра малако, якое пачало скісаць. *Абрызглае малако.*

**АБРЫ́ЗГНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -гне; абры́зг, -гла; *зак.* Набыць кіслы смак, закіснуць (пра малако). *Малако абрызгла.* ‖ *незак.* **абрызга́ць**, -а́е.

**АБРЫКО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паўднёвае фруктовае дрэва з жоўта-чырвонымі салодкімі пладамі з буйной костачкай, а таксама плод гэтага дрэва. ‖ *прым.* **абрыко́савы**, -ая, -ае *і* **абрыко́сны**, -ая, -ае. *Абрыкосавы джэм. Абрыкосная костачка.*

**АБРЫ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Раптам упасці зверху, абваліцца. *Столь абрынулася.* **2.** *перан., на каго-што.* З вялікай сілай напасці, наваліцца; нечакана спасцігнуць каго-, што-н. *А. на ворага. Гора абрынулася на бацькоў.* ‖ *незак.* **абрына́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБРЫ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ры́нь; -нуты; *зак., што.* **1.** Імкліва абрушыць што-н. на каго-, што-н. *А. на ворага глыбы камення.* **2.** *перан.* З вялікай сілай накіраваць што-н. на каго-н. *А. усю злосць на бюракратаў.* ‖ *незак.* **абрына́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБРЫ́С**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лінія, якая абмяжоўвае прадмет адной вонкавай рысай; контурны малюнак. ‖ *прым.* **абры́сны**, -ая, -ае.

**АБРЫСАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -су́ецца; *зак.* Стаць бачным, выразным. *Удалечыні абрысаваліся скалы.* ‖ *незак.* **абрысо́ўвацца**, -аецца.

**АБРЫСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* **1.** *што.* Абвесці рысай, абчарціць. **2.** *перан., каго-што.* Ахарактарызаваць, апісаць. *А. сітуацыю.* ‖ *незак.* **абрысо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абрысо́ўка**, -і, *ДМ* -со́ўцы, *ж. і* **абрысо́ўванне**, -я, *н.*

**АБРЫ́Ў**, -ры́ву, *мн.* -ры́вы, -ры́ваў, *м.* **1.** *гл.* абарваць[1], абарвацца. **2.** Месца, дзе што-н. абарвана. *А. лініі.* **3.** Круты схіл, адкос берага ракі. *Скочыць з абрыву.*

**АБРЭВІЗАВА́ЦЬ** *гл.* рэвізаваць.

**АБРЭВІЯТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ту́р, *ж.* (кніжн.). Складанаскарочанае слова, утворанае шляхам скарачэння матывуючай адзінкі, напр.: *БДУ, ЦЭЦ, філфак.* ‖ *прым.* **абрэвіятý́рны**, -ая, -ае.

**АБРЭ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Абрэзаны край, беражок. *Кніга з зялёным абрэзам.* **2.** Вінтоўка з укарочаным канцом ствала. *Страляць з абрэза.* ◊ **У абрэз** (разм.) — без лішку, якраз столькі, колькі можа спатрэбіцца. *Грошай у а.*

**АБРЭ́ЗАК**, -зка, *мн.* -зкі, -зкаў, *м.* Астатак ад рэзкі чаго-н. *Абрэзкі скуры. Абрэзкі дошак.* ‖ *прым.* **абрэ́зкавы**, -ая, -ае.

**АБРЭ́ЗАЦЦА**, -рэ́жуся, -рэ́жашся, -рэ́жацца; -рэ́жся; *зак.* Параніць сябе чым-н. вострым; парэзацца. *А. асколкам шкла.* ‖ *незак.* **абрэ́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **абраза́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБРЭ́ЗАЦЬ**, -рэ́жу, -рэ́жаш, -рэ́жа; -рэ́ж; -рэ́заны; *зак.* **1.** Адразаючы па краях ці з канцоў, пакараціць, памяншыць што-н.; падрэзаць. *А. пазногці.* **2.** Аддзяліць, адрэзаць што-н., зрэзаць збоку, па ўсёй паверхні; зняць. *А. сухія галіны на яблынях. А. гарэлую скарынку ў хлебе.* **3.** *што.* Параніць чым-н. вострым, парэзаць. *А. палец.* **4.** *перан., каго-што.* Рэзка перапыніць, прымусіць змоўкнуць (разм.). *А. на першым слове.* **5.** *перан.* Паменшыць, скараціць памеры, колькасць чаго-н. *А. паёк.* ‖ *незак.* **абрэ́зваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **абраза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абрэ́званне**, -я, *н.* (да 1 знач.), **абраза́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **абрэ́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 1 знач.).

**АБРЭ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (гіст.). Горац, які прымаў удзел у барацьбе супраць царскіх войск і адміністрацыі.

**АБСА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -са́д, *ж.* **1.** Дрэвы, кусты, пасаджаныя ўздоўж ці вакол чаго-н.; насаджэнні. *Усцяж шляху зелянела маладая а.* **2.** Тое, што і *шуфляда* (у 2 знач.). *А. для акна.* ‖ *прым.* **абса́давы**, -ая, -ае.

**АБСАДЗІ́ЦЬ**, -саджу́, -са́дзіш, -са́дзіць; -са́джаны; *зак.* **1.** *што* і *чым.* Пасадзіць дрэвы, кусты вакол чаго-н. *А. сядзібу бярозамі.* **2.** *каго.* Перамагчы, паваліць каго-н. (разм.). *Ён і мядзведзя абсадзіць.* ‖ *незак.* **абса́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абса́джванне**, -я, *н. і* **абса́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (спец.). ‖ *прым.* **абса́дачны**, -ая, -ае. (да 1 знач.).

**АБСАЛЮ́Т**, -у, *М* -лю́це, *м.* (кніжн.). **1.** У ідэалістычнай філасофіі: вечная нязменная першаасноа ўсяго існага (дух, ідэя, бажаство). **2.** Нешта безадноснае, незалежнае, самаіснае. *Узвесці ў а.* **3.** Мяжа дасканаласці, узор; найвышэйшае разумовае ўяўленне пра што-н.

**АБСАЛЮ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Безумоўны, неабмежаваны, узяты па-за ўсякім параўнаннем. *Абсалютныя і адносныя паказчыкі. А. чэмпіён* (спартсмен-пераможац у мнагабор'і). **2.** Поўны, канчатковы. *А. спакой. Абсалютная большасць* (пераважная большасць). *Абсалютная манархія* (самадзяржаўе). *А. слых* (слых, які дакладна вызначае вышыню любога тону). *Абсалютна* (прысл.) *правільна.* ○ **Абсалютны нуль** — самая нізкая тэмпература (-273,15 °С). ◊ **Абсалютны нуль** — пра нікчэмнага, зусім бескарыснага ў якой-н. справе чалавека.

**АБСАЛЮТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Форма дзяржаўнага кіравання, пры якой вярхоўная ўлада цалкам належыць самадзяржаўнаму манарху; неабмежаваная манархія. ‖ *прым.* **абсалюты́сцкі**, -ая, -ае.

**АБСВІСТА́ЦЬ**, -ві́шчу, -ві́шчаш, -ві́шча; -вішчы́; -віста́ны; *зак., каго-што.* Свістам выказаць каму-н. сваё неадабрэнне, асуджэнне. *А. артыста.* ‖ *незак.* **абсві́ствацъ**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСЕ́ВАК**, -се́ўка, *мн.* -се́ўкі, -се́вак, *м.* **1.** Лапік на ніве, які застаўся незасеяным. **2.** толькі *мн.* Рэшткі ад прасявання; высеўкі. *Змесці ў кучу абсеўкі.* **3.** *мн., перан.* Пра што-н. непаўнавартаснае. *Мы ж табе не абсеўкі якія.* ‖ *прым.* **абсе́ўкавы**, -ая, -ае.

**АБСЕ́ДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што* (разм.). Седзячы, абмяць. *А. крэсла.* ‖ *незак.* **абсе́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСЕ́ЙВАЦЬ** *гл.* абсеяць.

**АБСЕ́КЧЫ**, -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы́; -се́чаны; *зак., каго-што.* Тое, што і *абсячы.* ‖ *незак.* **абсяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абсяка́нне**, -я, *н.*

**АБСЕМЯНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -меніце́, -мяня́ць; -нёны; *зак., каго-што.* **1.** Засеяць насеннем. *А. поле.* **2.** Тое, што і *асемяніць* (спец.). ‖ *незак.* **абсемяня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **абсемяне́нне**, -я, *н.*

**АБСЕНТЭІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Ухіленне выбаршчыкаў ад удзелу ў выбарах у дзяржаўныя органы. ‖ *прым.* **абсентэі́сцкі**, -ая, -ае.

**АБСЕРВАТО́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Навуковая ўстанова, абсталяваная для астранамічных, метэаралагічных, геафізічных назіранняў, а таксама будынак, у якім вядуцца такія назіранні. ‖ *прым.* **абсервато́рскі**, -ая, -ае.

**АБСЕ́СЦІ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ся́дзе; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Сеўшы, размясціўшыся вакол каго-, чаго-н., абкружыць. *Дзеці абселі вогнішча.* **2.** *каго-што.* Сеўшы ў вялікай колькасці, заняць паверхню чаго-н. *Мухі абселі стол.* **3.** (*1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв.*). Пра з'яўленне балячак, сыпу на губах, твары. *Балячкі абселі губы.* **4.** (*1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв.*). Зрабіцца больш шчыльным, апусціцца ўніз, апасці. *Снег абсеў. Зямля абсела за ноч.* **5.** Страціўшы апору ў нагах, зваліцца; асунуцца ўніз. *Ад страху чалавек абсеў на зямлю.* ‖ *незак.* **абсяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБСЕ́Ў**, -се́ву, *м.* Тое, што і *абсевак.*

**АБСЕ́ЯЦЬ**, -се́ю, -се́еш, -се́е; -се́й; -се́яны; *зак., што.* Правесці сяўбу, засеяць. *Абсеялі загоны адборным насеннем.* ‖ *незак.* **абсява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБСІ́ВЕРАЦЬ** *гл.* сіверацъ.

**АБСКАКА́ЦЬ**, -скачу́, -ска́чаш, -ска́ча; -скачы́; -скака́ны; *зак., каго-што.* **1.** Праскакаць вакол каго-, чаго-н. *А. балота.* **2.** Скачучы, абагнаць. *Рысісты конь усіх абскакаў на скачках.* **3.** *перан.* Перамагчы, апярэдзіць у чым-н. *А. канкурэнтаў.* ‖ *незак.* **абска́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСКА́РДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Падаць афіцыйную скаргу ў вышэйшую інстанцыю наконт чаго-н., што прызнаецца незаконным, няправільным. *А. судовы прыгавор.* ‖ *незак.* **абска́рджваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абска́рджанне**, -я, *н.*

**АБСКЛЮДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак., што.* Абчасаць склюдам. *А. бервяно.* ‖ *незак.* **абсклюдо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСКРЭ́БЦІ**, -рабу́, -рабе́ш, -рабе́; -рабём, -рабяце́, -рабу́ць; -ро́б, -рэ́бла; -рабі́; -рэ́бены; *зак., што.* Скрабучы, ачысціць што-н. *А. моркву. А. бульбіну.* ‖ *незак.* **абскраба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **абскрэ́бваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСКУ́БЦІ**, -бу́, -бе́ш, -бе́; -бём, -бяце́, -бу́ць; -ку́б, -бла; -бі́; -куба́ны *і* -ку́бены; *зак., каго-што.* **1.** Скубучы, ачысціць (ад пер'я). *А. курыцу.* **2.** Скубучы, зрабіць больш роўным. *А. стог сена.* **3.** Сашчыпаць, паз'ядаць (траву і пад.). *Авечкі абскублі ўсе ўзмежкі.* ‖ *незак.* **абскуба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **абску́бваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСКУРА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Вораг асветы, навукі, цемрашал, рэакцыянер. ‖ *ж.* **абскура́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **абскура́нцкі**, -ая, -ае.

**АБСКУРАНТЫ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Варожае стаўленне да асветніцтва і культурнага прагрэсу, цемрашальства; склад думак, характар дзеянняў абскуранта. ‖ *прым.* **абскуранты́сцкі**, -ая, -ае.

**АБСЛЕ́ДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны; *зак. і незак., каго-што.* **1.** Зрабіць (рабіць) агляд, праверку чаго-н. **2.** Уважліва азнаёміцца (знаёміцца) з чым-н., вывучаць (вывучыць) што-н. *А. жыллёвыя ўмовы. А. мясцовасць.* ‖ *наз.* **абсле́даванне**, -я, *н. Легчы ў бальніцу на а.*

**АБСЛІ́ЗГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Зрабіць што-н. гладкім, коўзкім. *А. горку.* ‖ *незак.* **абслі́згваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСЛІ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што* (разм.). Намачыць слінай; запэцкаць. *А. нагруднік.* ‖ *незак.* **абслі́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСЛУ́ГА**, -і, *ДМ* -лу́зе, *ж.* **1.** Сістэма сродкаў бытавога абслугоўвання насельніцтва; сэрвіс. *На добрым узроўні а. ў горадзе.* **2.** *зб.* Службовы персанал, які абслугоўвае каго-н. *Сабралася на сход а. бальніцы.* ‖ *прым.* **абслуго́вы**, -ая, -ае. *А. персанал.*

**АБСЛУГО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго-што.* Выконваць работу, звязаную з задавальненнем чыіх-н. бытавых патрэб. *А. хворых. А. пакупнікоў.* **2.** *што.* Выконваць работу, звязаную з эксплуатацыяй машын, станкоў і пад. *А. некалькі станкоў.* ‖ *зак.* **абслужы́ць**, -лужу́, -лу́жыш, -лу́жыць; -лу́жаны. ‖ *наз.* **абслуго́ўванне**, -я, *н.*.

**АБСЛУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Абследаваць стан унутраных органаў шляхам выслухвання. *А. хворага.* ‖ *незак.* **абслу́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСМА́ЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -жыцца; *зак.* Стаць абсмажаным. *Мяса абсмажылася.* ‖ *незак.* **абсма́жвацца**, -аецца.

**АБСМА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -маж; -жаны; *зак., каго-што.* Абпячы з усіх бакоў, падсмажыць. *А. качку. А. кавалак мяса.* ‖ *незак.* **абсма́жваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абсма́жванне**, -я, *н.*

**АБСМАКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* Упадабаць што-н. па смаку. *Дзеці абсмакавалі мёд.*

**АБСМАКТА́ЦЬ**, -макчу́, -мо́кчаш, -мо́кча; -макчы́; -макта́ны; *зак., што.* **1.** Пасмактаць з усіх бакоў. *А. цукерку.* **2.** *перан.* Усебакова вывучыць, абдумаць; смакуючы, падрабязна расказаць аб чым-н. (разм.). *А. усё да дробязей.* ‖ *незак.* **абсмо́ктваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСМАЛІ́ЦЦА**, -смалю́ся, -сма́лішся, -сма́ліцца; *зак.* Тое, што і *асмаліцца.* ‖ *незак.* **абсма́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБСМАЛІ́ЦЬ**[1] *гл.* смаліць[1].

**АБСМАЛІ́ЦЬ**[2] *гл.* смаліць[2].

**АБСМЯЯ́ЦЬ**, -мяю́, -мяе́ш, -мяе́; -мяём, -меяце́, -мяю́ць; -ме́й; -мя́яны; *зак., каго-што.* Паказаць каго-, што-н. у смешным выглядзе; высмеяць. *Абсмяялі хлопца. А. скнапнасць.* ‖ *незак.* **абсме́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абсмя́янне**, -я, *н.*

**АБСО́ЎВАЦЦА** *гл.* абсунуцца.

**АБСО́ЎВАЦЬ** *гл.* абсунуць.

**АБСО́ХЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў сухім. *Абсохлае бервяно.*

**АБСО́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; абсо́х, -хла; -со́хні; *зак.* Стаць сухім, высахнуць зверху. *Зямля абсохла.* ◊ **Малако на губах не абсохла** *у каго-н.* —пра таго, хто яшчэ надта малады і нявопытны. ‖ *незак.* **абсыха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБСТА́ВІЦЦА**, -та́ўлюся, -та́вішся, -та́віцца; *зак.* **1.** Паставіць што-н. вакол сябе. *А. крэсламі. А. кнігамі.* **2.** Абзавесціся мэбляй (разм.). *А. ў новай кватэры.* ‖ *незак.* **абстаўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**АБСТА́ВІЦЬ**, -та́ўлю, -та́віш, -та́віць; -та́ўлены; *зак.* **1.** *каго-што, чым.* Паставіць што-н. вакол каго-, чаго-н. *А. трыбуну кветкамі.* **2.** *што.* Уставіць, заставіць што-н. чым-н. *А. паліцы кнігамі. А. вокны вазонамі.* **3.** *што.* Паставіць у пакоі, кабінеце, кватэры мэблю, набыць абстаноўку (у 1 знач.). *А. дом мэбляй. А. кабінет.* **4.** *перан., што.* Стварыць умовы, абставіны для правядзення чаго-н. *Добра а. юбілей.* **5.** *перан., каго-што.* Дасягнуць большых поспехаў, апярэдзіць каго-н. у чым-н. (разм.). *А. канкурэнтаў.* ‖ *незак.* **абстаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АБСТАЛЯВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* абсталяваць. **2.** Сукупнасць прылад, механізмаў, машын і пад., неабходных для чаго-н. *Завод аснашчаны новым абсталяваннем. Лабараторнае а.*

**АБСТАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ва́ны; *зак., што.* **1.** Забяспечыць патрэбным абсталяваннем, інвентаром. *А. фізічны кабінет. А. лектарскую залу нагляднымі дапаможнікамі.* **2.** Набыць

абстаноўку (у 1 знач.), мэбляваць. **3.** Арганізаваць што-н. *Друкарню абсталявалі ў суседнім доме.* || *незак.* **абсталёўваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **абсталёўванне**, -я, *н. і* **абсталява́нне**, -я, *н.*

**АБСТАНО́ЎКА**, -і, *ДМ* -но́ўцы, *ж.* **1.** Мэбля, хатнія рэчы. *А. кватэры.* **2.** Умовы, абставіны, у якіх што-н. адбываецца. *Міжнародная а. Баявая а.* || *прым.* **абстано́вачны**, -ая, -ае.

**АБСТРАГАВА́ЦЦА**, -гу́юся, -гу́ешся, -гу́ецца; -гу́йся; *зак.* і *незак.* (кніжн.). У думках адарвацца (адрывацца) ад тых ці іншых уласцівасцей ці сувязей прадметаў, з'яў з мэтай выдзялення найбольш істотных і заканамерных іх прыкмет.

**АБСТРАГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Зрабіць (рабіць) абстракцыю (у 1 знач.) чаго-н.; у думках адкінуць (адкідваць) неістотныя ўласцівасці, сувязі прадмета і вылучыць (вылучаць) яго асноўныя, агульныя ўласцівасці, мысліць адцягнена.

**АБСТРА́КТНЫ**, -ая, -ае. Заснаваны на абстракцыі (у 1 знач.); адцягнены; *проціл.* канкрэтны. *Абстрактныя паняцці. Абстрактнае мысленне.* || *наз.* **абстра́ктнасць**, -і, *ж.*

**АБСТРА́КЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Мысленнае адцягненне, адасабленне ад тых ці іншых бакоў, уласцівасцей або сувязей прадметаў і з'яў для выдзялення асноўных, істотных іх прыкмет, агульных уласцівасцей. *Пры дапамозе абстракцыі ўзніклі ўсе лагічныя паняцці.* **2.** Адцягненае паняцце, тэарэтычнае абагульненне вопыту. *Навуковая а.*

**АБСТРАКЦЫЯНІ́ЗМ**, -у, *м.* Кірунак у жывапісе, скульптуры, графіцы 20 ст., паслядоўнікі якога ўспрымаюць рэальны свет у выглядзе адцягненых, абстрактных форм, каляровых плям, ліній і пад. || *прым.* **абстракцыяні́сцкі**, -ая, -ае.

**АБСТРАКЦЫЯНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак — паслядоўнік абстракцыянізму. || *ж.* **абстракцыяні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АБСТРАЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* (разм.). Пабываць у баях, прывыкнуць да баявой абстаноўкі. *Навабранцы абстраляліся.*

**АБСТРАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* **1.** Адкрыць агонь па кім-, чым-н. *А. ворага. А. вышыню.* **2.** Выправаваць у стральбе. *А. ружжо.* || *незак.* **абстрэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСТРАЧЫ́ЦЬ**, -рачу́, -ро́чыш, -ро́чыць; -ро́чаны; *зак., што.* Прастрачыць што-н. кругом, па краях. *А. каўнер.* || *незак.* **абстро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСТРУГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -ру́ганы *і* -руга́ны; *зак., што.* Стругаючы, зрабіць гладкім. *А. дошку.* || *незак.* **абстру́гваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСТРУ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Дзеянне, адкрыта накіраванае на зрыў чаго-н., наўмысны зрыў у знак пратэсту якога-н. мерапрыемства шумам, выкрыкамі і пад. *Учыніць каму-н. абструкцыю.* || *прым.* **абструкцы́йны**, -ая, -ае.

**АБСТРЫ́ГЧЫ** *гл.* стрыгчы.

**АБСТРЫ́ГЧЫСЯ** *гл.* стрыгчы.

**АБСТРЭ́Л**, -у, *м.* Стральба па якой-н. цэлі. *Артылерыйскі а.* ◊ **Узяць (браць) пад абстрэл** — рэзка крытыкаваць каго-н.

**АБСТУПІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ту́піць; *зак., каго-што.* Акружыць; ахапіць з усіх бакоў. *Дзеці абступілі казачніка. Лазняк абступіў возера. Горад абступілі высокія горы.* || *незак.* **абступа́ць**, -а́е.

**АБСУ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* Тое, што і *асунуцца.* || *незак.* **абсо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБСУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -су́нь; -нуты; *зак., што.* Тое, што і *асунуць.* || *незак.* **абсо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБСУ́РД**, -у, *М* -дзе, *м.* Недарэчнасць, бязглуздзіца. *Дайсці да абсурду.*

**АБСУ́РДНЫ**, -ая, -ае. Недарэчны, бязглузды. *Абсурдная думка.* || *наз.* **абсу́рднасць**, -і, *ж. і* **абсу́рд**, -у, *М* -дзе, *м.*

**АБСУШЫ́ЦЦА**, -сушу́ся, -су́шышся, -су́шыцца; *зак.* Высушыць сваю вопратку. *А. ля вогнішча.* || *незак.* **абсу́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБСУШЫ́ЦЬ**, -сушу́, -су́шыш, -су́шыць; -су́шаны; *зак., каго-што.* Высушыць зверху, кругом. *А. мокрае адзенне.* || *незак.* **абсу́шваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **абсу́шванне**, -я, *н. і* **абсу́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.*

**АБСЦЫ́СА**, -ы, *ж.* (спец.). Адна з каардынат, якая вызначае месца пункта ў прасторы. || *прым.* **абсцы́сны**, -ая, -ае.

**АБСЦЭ́С**, -у, *м.* (спец.). Запаленне тканак якога-н. органа з нагнаеннем; гнойны нарыў. *А. лёгкіх.* || *прым.* **абсцэ́сны**, -ая, -ае.

**АБСЫ́ПАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -плецца; *зак.* **1.** Абваліцца, разваліцца, сыплючыся; апасці. *Лісце даўно абсыпалася з дрэў. Склеп абсыпаўся.* **2.** Пакрыцца мноствам чаго-н. *Начное неба абсыпалася зорамі.* || *незак.* **абсыпа́цца**, -а́ецца.

**АБСЫ́ПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; -сы́п; -паны; *зак.* **1.** *каго-што.* Пасыпаць, пакрыць каго-, што-н. зверху чым-н. сыпкім; сыплючыся, раскідваючыся, пакрыць паверхню чаго-н.; пакрыць з усіх бакоў. *А. цукрам пірагі. Пялёсткі яблынь абсыпалі зямлю. Іней абсыпаў кожную іголачку елак.* **2.** *безас., каго-што.* Пакрыць высыпкай. *Увесь твар і губы абсыпала.* **3.** *перан., каго-што.* Шчодра надзяліць каго-н. чым-н. *А. падарункамі. А. кампліментамі.* || *незак.* **абсыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **абсыпа́нне**, -я, *н. і* **абсы́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (да 1—3 знач.). **5.** Абтрэсці што-н. з чаго-н.

**АБСЯВА́ЦЬ** *гл.* абсеяць.

**АБСЯ́Г**, -у, *м.* **1.** Прастора, абшар, далягляд. *Любавацца абсягам палёў.* **2.** *перан.* Сфера, галіна дзейнасці каго-, чаго-н. *А. інтарэсаў.* || *прым.* **абся́жны**, -ая, -ае.

**АБСЯДА́ЦЬ** *гл.* абсесці.

**АБСЯДЛА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Тое, што і *асядлаць* (у 1 і 2 знач.).

**АБСЯКА́ННЕ** *гл.* абсячы, абсекчы.

**АБСЯКА́ЦЬ** *гл.* абсячы, абсекчы.

**АБСЯЧЫ́**, -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы́; -се́чаны; *зак.* **1.** *што.* Адсякаючы, аддзяліць. *А. сукі на дрэве.* **2.** *перан., каго.* Спыніць, абарваць. *Абсек мяне бацька, не даў слова сказаць.* || *незак.* **абсяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **абсяка́нне**, -я, *н.*

**АБСЯЧЫ́СЯ**, -сяку́ся, -сячэ́шся, -сячэ́цца; -сячо́мся, -сечаце́ся, -сяку́цца; -се́кся, -лася, -сячы́ся; *зак.* Тое, што і *асячыся* (у 2 знач.). || *незак.* **асяка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБТА́ЛЫ**, -ая, -ае. Які абтаў, вызваліўся ад лёду, снегу (зверху, па краях) у выніку яго раставання. *А. бераг ракі.*

**АБТАПТА́ЦЦА**, -тапчу́ся, -то́пчашся, -то́пчацца; -тапчы́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Стаць абтаптаным, утаптацца. *Снег абтаптаўся.* **2.** Знасіць, стаптаць абутак. *Зусім абтаптаўся, няма чаго на ногі насунуць.* || *незак.* **абто́птвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБТАПТА́ЦЬ**, -тапчу́, -то́пчаш, -то́пча; -тапчы́; -тапта́ны; *зак., што.* Утаптаць што-н. вакол чаго-н., абмяць нагамі. *А. зямлю каля слупа. А. сена на возе.* || *незак.* **абто́птваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -а́е; *зак.* Вызваліцца зверху ці па краях ад снегу, лёду пры яго раставанні; растаць зверху, з краёў; зменшыцца ў выніку раставання. *Шыбы абталі. Ільдзіна абтала.* || *незак.* **абтава́ць**, -тае́.

**АБТАЧЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -то́чыцца; *зак.* Стаць гладкім, абточаным. || *незак.* **абто́чвацца**, -аецца.

**АБТАЧЫ́ЦЬ**[1], -тачу́, -то́чыш, -то́чыць; -то́чаны; *зак., што.* На такарным станку ці з дапамогай якіх-н. інструментаў надаць чаму-н. патрэбную форму, зрабіць гладкім, роўным. *А. дэталь.* || *незак.* **абто́чваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **абто́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж. і* **абто́чванне**, -я, *н.*

**АБТАЧЫ́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -то́чыць; -то́чаны; *зак., што.* Абгрызці, аб'есці з усіх бакоў (пра чарвей, насякомых). *Чарвякі абтачылі ўсю кару.* || *незак.* **абто́чваць**, -ае.

**АБТО́ЧНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для абточкі. *А. станок.*

**АБТРАПА́ЦЦА**, -раплю́ся, -рэ́плешся, -рэ́плецца; -рапі́ся; *зак.* **1.** Ачысціць сябе ад чаго-н. *А. ад снегу.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Ачысціцца ад кастрыцы (пра лён, пяньку). **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). У выніку доўгай носкі падрацца, абабіцца па краях. *Гарнітур мой зусім абтрапаўся.*

**АБТРАПА́ЦЬ**, -раплю́, -рэ́плеш, -рэ́пле; -рапі́; -рапа́ны; *зак., што.* **1.** Абабіць, стрэсці што-н. з чаго-н. *А. пыл з адзення.* **2.** Ачысціць трапаннем (лён, пяньку). *А. валакно.* **3.** Падраць, абабіць, абнасіць па краях (пра вопратку). *А. рукавы.*

**АБТРЭ́СЦІ**, -расу́, -расе́ш, -расе́; -расём, -расяце́, -расу́ць; -ро́с, -рэ́сла; -расі́; -рэ́сены; *зак., што.* Тое, што і *атрэсці.* ‖ *незак.* **абтраса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБТРЭ́СЦІСЯ**, -расу́ся, -расе́шся, -расе́цца; -расёмся, -расяце́ся, -расу́цца; -ро́сся, -рэ́слася; -расі́ся; *зак.* Тое, што і *атрэсціся.* ‖ *незак.* **абтраса́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБТУ́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -ту́х, -хла; *зак.* Тое, што і *атухнуць.* ‖ *незак.* **абтуха́ць**, -а́е.

**АБТУШЫ́ЦЬ** *гл.* тушыць[1].

**АБТЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). **1.** Натыкаць што-н. вакол чаго-н. *А. градку калочкамі.* **2.** Утыкаць чым-н. якую-н. паверхню. *А. падушачку іголкамі.* **3.** Заканапаціць, абканапаціць што-н. ‖ *незак.* **абтыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБТЫКА́ЦЬ** *гл.* абаткнуць, абты́каць.

**АБТЫНКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* Тое, што і *атынкаваць. А. сцены дома.* ‖ *незак.* **абтынко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абтынко́ўванне**, -я, *н.*

**АБУВА́ЦЦА** *гл.* абуцца.

**АБУВА́ЦЬ** *гл.* абуць.

**АБУДЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які абуджае да чаго-н.; пабуджальны. *А. заклік.*

**АБУДЗІ́ЦЦА**, абуджу́ся, абу́дзішся, абу́дзіцца; *зак.* **1.** Тое, што і *прачнуцца. А. на досвітку. А. ад крыку.* **2.** *перан.* Ажывіцца, напоўніцца шумам, гоманам. *Вуліца абудзілася ад начной цішыні. Прырода абудзілася да новага жыцця.* **3.** *перан.* Узнікнуць, выявіцца (пра пачуцці, уласцівасці, якасці). *Абудзілася пачуццё адказнасці за справу.* **4.** Вярнуцца да жыцця, дзейнасці, аднавіць жыццёвыя працэсы. *Прырода абудзілася да новага жыцця.* ‖ *незак.* **абуджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБУДЗІ́ЦЬ**, абуджу́, абу́дзіш, абу́дзіць; абу́джаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Перапыніць чый-н. сон; прымусіць ачнуцца. *Шум абудзіў жанчыну.* **2.** *перан., што.* Парушыць спакой, напоўніць гукамі, галасамі, вярнуць да жыцця, дзейнасці, вывесці са стану спакою. *Гоман абудзіў вуліцу.* **3.** *перан., што.* Выклікаць якія-н. пачуцці, уласцівасці, якасці. *А. фантазію дзяцей.* ‖ *незак.* **абуджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абуджэ́нне**, -я, *н.*

**АБУ́ЗА**, -ы, *ж.* **1.** Непрыемны абавязак, лішні клопат, турбота. *Узваліць абузу на чалавека.* **2.** Той (тое), хто (што) абцяжарвае каго-, што-н. *Лішнія рэчы — а. ў дарозе.*

**АБУМО́ВІЦЬ**, -мо́ўлю, -мо́віш, -мо́віць; -мо́ўлены; *зак., што.* **1.** Выклікаць што-н., з'явіцца прычынай, матывам для ўзнікнення чаго-н. *Старанная праца абумовіла поспех.* **2.** Абмежаваць што-н. пэўнымі ўмовамі, дагаворамі; агаварыць. *А. свой удзел у рабоце.* ‖ *незак.* **абумо́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБУРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які выклікае гнеў, абурэнне. *А. ўчынак.* ‖ *наз.* **абура́льнасць**, -і, *ж.*

**АБУ́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* Стаць абураным; разгневацца. *А. дрэнным учынкам. А. на таварыша.* ‖ *незак.* **абура́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБУРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., абу́рыцца; *зак.* (разм.). Абрушыцца, абваліцца. *Сцяна абурылася.* ‖ *незак.* **абу́рвацца**, -аецца.

**АБУ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго-што.* Давесці да абурэння; выклікаць гнеў, незадавальненне. *Яго ўчынак абурыў усіх.* ‖ *незак.* **абура́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абурэ́нне**, -я, *н.*

**АБУРЫ́ЦЬ**, абуру́, абу́рыш, абу́рыць; абу́раны; *зак., што* (разм.). Абваліць, абрушыць. *А. сцены склепа.* ‖ *незак.* **абу́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБУРЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* абу́рыць. **2.** Вельмі моцнае незадавальненне, гнеў. *Выказаць сваё а.*

**АБУ́ТАК**, -тку, *м.* Выраб са скуры ці іншых матэрыялаў, звычайна з цвёрдай падэшвай, які носяць на нагах. *Зімовы а. Вытворчасць абутку.* ‖ *прым.* **абутко́вы**, -ая, -ае.

**АБУ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Працаўнік абутковай прамысловасці. ‖ *ж.* **абу́тніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **абу́тніцкі**, -ая, -ае.

**АБУ́Х**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Тупая патоўшчаная частка вострай прылады (звычайна сякеры), процілеглая лязу. *Удар абухом.* **2.** *перан.* Дурань (лаянк.) *А. верыць аднаму сабе, а ўсіх астатніх падазрае ў нечым.* ◊ **Падвесці пад абух** — загубіць. **Як абухом па галаве** — уразіць раптоўнай непрыемнай весткай. ‖ *памянш.* **абушо́к**, -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.* ‖ *прым.* **абухо́вы**, -ая, -ае.

**АБУ́ЦЦА**, абу́юся, абу́ешся, абу́ецца; *зак.* **1.** Надзець сабе на ногі абутак. *Бацька абуўся і пайшоў на вуліцу.* **2.** Набыць сабе абутак, забяспечыць сябе абуткам. *Трэба думаць, як на зіму а.* ‖ *незак.* **абува́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБУ́ЦЬ**, абу́ю, абу́еш, абу́е; абу́ты; *зак., каго-што.* **1.** Надзець на ногі сабе ці каму-н. абутак. *А. боты.* **2.** Забяспечыць каго-н. абуткам. *Трэба на зіму дзяцей а.* ◊ **Абуць у лапці** — абхітрыць, давесці да беднасці. *Гулі не аднаго ў лапці абулі* (прыказка). ‖ *незак.* **абува́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБУЧА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* Праходзіць ваенную падрыхтоўку. ‖ *зак.* **абучы́цца**, абучу́ся, абу́чышся, абу́чыцца. ‖ *наз.* **абучэ́нне**, -я, *н.*

**АБУЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго.* Праводзіць ваенную падрыхтоўку. *А. навабранцаў.* ‖ *зак.* **абучы́ць**, абучу́, абу́чыш, абу́чыць; абу́чаны. ‖ *наз.* **абучэ́нне**, -я, *н.*

**АБУШО́К**, -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.* **1.** *гл.* абух. **2.** Ручны інструмент для абколвання пластоў ломкіх горных парод.

**АБФУТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Абшыць футравінай што-н. для ацяплення. *А. дзверы.* ‖ *незак.* **абфутро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБХАДЗІ́ЦЬ**, -хаджу́, -хо́дзіш, -хо́дзіць; -хо́джаны; *зак., што.* Ходзячы, пабываць усюды (у многіх месцах), абысці ўдоўж і ўпоперак. *Абхадзіў ён усе ваколіцы.*

**АБХА́ЗЫ** *і* **АБХА́ЗЦЫ**, -аў, *адз.* абха́з, -а *і* абха́зец, -зца, *м.* Народ, які складае асноўнае, карэннае насельніцтва Абхазіі. ‖ *ж.* **абха́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак. ‖ *прым.* **абха́зскі**, -ая, -ае.

**АБХАПІ́ЦЬ**, -хаплю́, -хо́піш, -хо́піць; -хо́плены; *зак., каго-што.* **1.** Абняць (рукамі, лапамі і пад.). *Дзяўчынка абхапіла маці за шыю.* **2.** *перан.* Акружыць з усіх бакоў (пра агонь, цемру і пад.). *Абхапіў агонь будыніну.* **3.** Успрыняць цалкам што-н.; зразумець, засвоіць. *А. позіркам краявід. Адразу а. увесь матэрыял.* **4.** Распаўсюдзіць сярод каго-н. *А. падпіскай на газеты.* **5.** Зрабіць абход праціўніка з флангаў з мэтай нанясення ўдару. *Партызаны абхапілі ворага з трох бакоў.* ‖ *незак.* **абхо́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБХВАСТА́ЦЬ**, -хвашчу́, -хво́шчаш, -хво́шча; -хвашчы́; -хваста́ны; *зак., што* (разм.). Хвошчучы, абабіць. *А. пугай лісце з куста.* ‖ *незак.* **абхво́стваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБХВА́Т**, -у, *М* -хва́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Даўжыня па акружнасці, роўная адлегласці паміж распасцёртымі рукамі, якімі ахопліваецца што-н. круглае. *Дуб у два абхваты.* **2.** Таўшчыня чаго-н., якая вымяраецца па акружнасці. *Ствол баабаба дасягае 45 м у абхваце.*

**АБХІНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* Тое, што і *ахінуць.* ‖ *незак.* **абхіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБХІТРЫ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; *зак., каго-што.* Перамагчы каго-н. хітрасцю, перахітрыць. *Усё ж ён абхітрыў мяне.*

**АБХО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** *гл.* абысці. **2.** Месца, шлях, па якім можна абысці. *Зручны а.* **3.** Участак лесу (адзін або некалькі кварталаў), які даглядаецца адным леснікам. *Парадак у абходзе.* **4.** Манеўр для ўдару ў фланг ці ў тыл праціўніка. *Рушыць палкі ў а.*

**АБХО́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго* (разм.). Паддобрываючыся, імкнуцца пераканаць каго-н. у чым-н., схіліць да чаго-н.

**АБХО́ДЗІЦЦА** *гл.* абысціся.

**АБХО́ДЗІЦЬ** *гл.* абысці.

**АБХО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, па якім можна ісці ў абход; кружны. *А. шлях.* **2.** *перан.* Не просты, звязаны з хітрыкамі, падманам (пра дзеянні, паводзіны каго-н.). *Дзейнічаць абходнымі сцежкамі.* **3.** Звязаны з абходам, акружэннем ворага. *А. манеўр.* ○ **Абходны ліст (лісток)** — дакумент, у якім адзначаецца, што няма матэрыяльнай запазычанасці ў тых, хто ідзе ў адпачынак ці звальняецца.

**АБХО́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які даглядае ўчастак дарогі. *Дарожны а. Пуцявы а.* ‖ *прым.* **абхо́дчыцкі**, -ая, -ае.

**АБХО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* абхапіць.

**АБЦАЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак., каго-што.* Пацалаваць усіх, кожнага, усё, многае. ‖ *незак.* **абцало́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЦА́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дэталь абутку ў выглядзе падстаўкі, якая прыпадымае пятку вышэй узроўню наска. *Боты на высокіх абцасах.* ◊ **Трымаць пад абцасам** *каго-н.* — трымаць у поўным падпарадкаванні. ‖ *памянш.* **абца́сік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **абца́савы**, -ая, -ае.

**АБЦЕРАБІ́ЦЬ**, -цераблю́, -цярэ́біш, -цярэ́біць; -цярэ́блены; *зак., што.* **1.** Ачысціць ад галля, бацвіння, лісця і пад. *А. дрэва. А. буракі і моркву.* **2.** Аб'есці (разм.). *А. агрэст. Шпакі абцерабілі вішні.* ‖ *незак.* **абцярэ́бліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЦЕРУШЫ́ЦЬ**, -церушу́, -цяру́шыш, -цяру́шыць; -цяру́шаны; *зак., што.* **1.** Абтрэсці, абабіць (пыл, снег і пад.) з чаго-н. *А. пясок з вопраткі.* **2.** Памяўшы, аддзяліць, вытрасці. *А. каласы.* ‖ *незак.* **абцяру́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЦЕ́РЦІ**, абатру́, абатрэ́ш, абатрэ́; абатро́м, абатраце́, абатру́ць; абцёр, -це́рла; абатры́; абцёрты; *зак.* **1.** *каго-што.* Выцерці, зрабіць сухім, чыстым. *А. рукі. А. твар.* **2.** *што.* Зняць, сцерці верхні слой чаго-н. *А. старую фарбу.* ‖ *незак.* **абціра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **абце́рціся**, абатру́ся, абатрэ́шся, абатрэ́цца; абатро́мся, абатраце́ся, абатру́цца; абцёрся, -це́рлася; абатры́ся; *незак.* **абціра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **абціра́нне**, -я, *н.* *і* **абці́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* *Халоднае абціранне* (масаж цела мокрым ручніком). *Анучка для абціркі станка.*

**АБЦІ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* **1.** Адсечаны кавалак дрэва, бервяна і пад. *А. ад жардзіны.* **2.** Тое, ад чаго адсечана якая-н. частка. *Ад жардзіны застаўся адзін а.* ‖ *прым.* **абці́нкавы**, -ая, -ае.

**АБЦІНА́ННЕ** *гл.* абцяць.

**АБЦІНА́ЦЬ** *гл.* абцяць.

**АБЦІРА́ЦЦА** *гл.* абцерці.

**АБЦІРА́ЦЬ** *гл.* абцерці.

**АБЦІ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (разм.). **1.** *гл.* абцерці. **2.** Тое, чым абціраюць што-н. ‖ *прым.* **абці́рачны**, -ая, -ае (спец.). *А. матэрыял.*

**АБЦІСКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які прызначаны для абціскання. *А. цэх.*

**АБЦІСКНЫ́**, -а́я, -о́е. Тое, што і *абцiскальны.*

**АБЦІ́СНУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* Стаць абціснутым; прымяцца. *Салома абціснулася.* ‖ *незак.* **абціска́цца**, -а́ецца.

**АБЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* Сціснуць з усіх бакоў (для выдалення вільгаці, для ўшчыльнення, надання патрэбнай формы і пад.), прымяць. *А. салому. А. фанеру пад гідраўлічным прэсам.* ‖ *незак.* **абціска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБЦУГІ́**, -бў. **1.** Металічны інструмент у выглядзе двух змацаваных на шарніры стрыжняў, які служыць для сціскання, захоплівання, расколвання, вырывання. *Сталярныя а.* **2.** Інструмент, які выкарыстоўваецца ў кавальскай справе для захоплівання і заціскання жалеза. *Кавальскія а.* **3.** *перан.* Тое, што стрымлівае, заціскае развіццё чаго-н. *Краіна ў абцугах крызісу.* **4.** *перан.* Ваенная аперацыя — ахоп праціўніка з двух бакоў. ◊ **Абцугамі не выцягнеш** — нічога не даб'ешся ад каго-н. **Узяць у абцугі** — стварыць каму-н. абставіны, становішча безвыходнасці. ‖ *прым.* **абцуго́вы**, -ая, -ае.

**АБЦУЖКІ́**, -бў. Маленькія абцугі. ‖ *прым.* **абцужко́вы**, -ая, -ае.

**АБЦЯГНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ця́гнецца; *зак.* Апусціцца, абвіснуць пад цяжарам. *Канат абцягнуўся.* ‖ *незак.* **абця́гвацца**, -аецца.

**АБЦЯГНУ́ЦЬ**, -цягну́, -ця́гнеш, -ця́гне; -цягні́; -ця́гнуты; *зак., што.* **1.** Туга нацягнуўшы, абшыць, абабіць тканінай і пад. *А. канапу.* **2.** Прывесці ў парадак на сабе адзенне, паправіць, пацягнуўшы ўніз. **3.** Адцягнуць, апусціць. *Груз абцягнуў вяроўку.* **4.** Абгарадзіць. *А. дротам участак пашы.* ‖ *незак.* **абця́гваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абця́гванне**, -я, *н. і* **абця́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.*

**АБЦЯЖА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -жа́р; -раны; *зак., каго-што.* **1.** Зрабіць цяжкім. *Плады абцяжарылі дрэўцы.* **2.** Выклікаць адчуванне стомленасці. *Зморанасць абцяжарыла рукі і ногі.* **3.** *перан.* Нарабіць цяжкасцей, клопату. *А. даручэннямі, просьбамі.* ‖ *незак.* **абцяжа́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абцяжа́ранне**, -я, *н. і* **абцяжа́рванне**, -я, *н.*

**АБЦЯ́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* **1.** *гл.* абцягнуць. **2.** Тое, чым абцягнута што-н. *Канапа са скураной абцяжкай.* ‖ *прым.* **абця́жачны**, -ая, -ае.

**АБЦЯКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае такія вонкавыя абрысы, што забяспечваюць пры руху найменшае супраціўленне паветра, вады і пад. *Аўтамабіль абцякальнай формы.* **2.** *перан.* Які абыходзіць спрэчныя пытанні; няпэўны, ухілісты. *А. адказ.* ‖ *наз.* **абцяка́льнасць**, -і, *ж.*

**АБЦЯКА́ЦЬ** *гл.* абцячы.

**АБЦЯРПЕ́ЦЦА**, -цярплю́ся, -це́рпішся, -це́рпіцца; -цярпі́ся; *зак.* (разм.). Звыкнуцца з чым-н. непрыемным, церпячы, прывыкнуць да чаго-н. *Спачатку было жудасна, а потым абцярпеўся.*

**АБЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ** *гл.* абцерабіць.

**АБЦЯ́ЦЬ**, абатну́, абатне́ш, абатне́; абатнём, абатняце́, абатну́ць; абатні́; абця́ты; *зак.* **1.** *што.* Абсячы, абрэзаць канцы чаго-н. *А. сукі дрэва.* **2.** *перан., каго-што.* Раптоўна спыніць якое-н. дзеянне. ‖ *незак.* **абціна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абціна́нне**, -я, *н.*

**АБЦЯЧЫ́**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -цячэ́; *зак.* **1.** *каго-што.* Абагнуць, абысці сваім цячэннем. *Рака абцякла вёску з абодвух бакоў.* **2.** Сцячы з чаго-н. мокрага (пра вадкасць). *Вада абцякла з адзення.* ‖ *незак.* **абцяка́ць**, -а́е. ‖ наз. **абцяка́нне**, -я *н.*

**АБЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю́, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак., каго-што.* Тое, што і *абчапляць.* ‖ *незак.* **абчэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **абчапі́цца**, -чаплю́ся, -чэ́пішся, -чэ́піцца; *незак.* **абчэ́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБЧАПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Абвешаць чым-н. каго-, што-н. *А. ёлку цацкамі.* ‖ *незак.* **абчэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **абчапля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца (разм.); *незак.* **абчэ́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБЧАСА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чэ́шацца; *зак.* Стаць роўным, гладкім ад часання. *Бервяно добра абчасалася.* ‖ *незак.* **абчэ́свацца**, -аецца.

**АБЧАСА́ЦЬ**, -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чашы́; -часа́ны; *зак., што.* Зрабіць што-н. гладкім, роўным пры дапамозе сякеры; аддзяліць што-н. ад чаго-н. чэшучы. *А. бервяно.* ‖ *незак.* **абчэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абчэ́сванне**, -я, *н.*

**АБЧА́ХЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *ачахлы.*

**АБЧА́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -ча́х, -хла; *зак.* Тое, што і *ачахнуць.*

**АБЧЫ́СЦІЦЦА**, -чы́шчуся, -чы́сцішся, -чы́сціцца; *зак.* Счысціць бруд, пыл з сябе, са сваёй вопраткі. *А. з дарогі.* ‖ *незак.* **абчышча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АБЧЫ́СЦІЦЬ**, -чы́шчу, -чы́сціш, -чы́сціць; -чы́шчаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць чыстым, ачысціць ад бруду, пылу і пад. *А. сцежку ад снегу.* **2.** *што.* Зняць налёт з паверхні чаго-н. *А. посуд.* **3.** *што.* Зняць скурку, лушпіны і пад. *А. апельсін. А. бульбіну.* **4.** *перан., каго-што.* Абрабаваць, абакрасці, абабраць (разм.). *А. магазін.* ‖ *незак.* **абчышча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АБШАЛЁЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* Тое, што і *шалёўка.* ‖ *прым.* **абшалёвачны**, -ая, -ае.

**АБШАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны; *зак., што.* Абабіць, абшыць шалёўкай. *А. хату.* ‖ *незак.* **абшалёўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абшалёўванне**, -я, *н.*

**АБША́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Неабсяжная прастора, разлегласць; участак вялікіх памераў. *А. зямлі нязмерны. Абшары балот.* ‖ *прым.* **абша́рны**, -ая, -ае.

**АБША́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Уладальнік вялікіх абшараў зямлі; памешчык. ‖ *прым.* **абша́рніцкі**, -ая, -ае.

**АБШАРПА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (разм.). Той, хто ходзіць у абшарпаным адзенні, у рызманах.

**АБШАРПА́НЫ**, -ая, -ае. Падраны, зношаны, абдзёрты, абабіты. *Абшарпанае паліто.*

**АБШАРПА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Знасіцца, падрацца (пра адзен-

не). *Абшарпалася адзенне.* **2.** Абнасіцца, абадрацца (пра чалавека). *Абшарпаўся за лета.*

**АБШАРПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Падраць носячы, знасіць. *А. паліто.* **2.** Падрапаць, нарабіць драпін на паверхні чаго-н. пры неасцярожным працяглым карыстанні. *А. лакіраваны стол.*

**АБШЛА́Г**, -а, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Адварот на канцы рукава, а таксама наогул ніжняя прышыўная частка рукава. ‖ *прым.* **абшлаго́вы**, -ая, -ае.

**АБШЛІФАВА́ЦЦА**, -фу́юся, -фу́ешся, -фу́ецца; -фу́йся; -фава́ны; *зак.* **1.** Паддацца шліфоўцы. *Камень добра абшліфаваўся.* **2.** *перан.* Стаць больш выхаваным, культурным (разм.). *А. ў горадзе.* ‖ *незак.* **абшліфо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБШЛІФАВА́ЦЬ**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны; *зак.* **1.** *што.* Пашліфаваць што-н. з усіх бакоў. *А. камень.* **2.** *перан., каго.* Выхаваць, зрабіць больш абыходлівым, вытрыманым (разм.). *А. маладога чалавека.* ‖ *незак.* **абшліфо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБШМАЛЬЦАВА́ЦЦА**, -цу́юся, -цу́ешся, -цу́ецца; -цу́йся; *зак.* Тое, што і *зашмальцавацца.* ‖ *незак.* **абшмальцо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБШМАЛЬЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак., што.* Тое, што і *зашмальцаваць.* ‖ *незак.* **абшмальцо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБШМО́РГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае, -аны; *зак., што* (разм.). Шморгаючы, сарваць лісце і пад. *А. бярозавае лісце.* ‖ *незак.* **абшмо́ргваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **абшмаргну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты.

**АБШМУ́ЛЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; -яны; *зак., што* (разм.). **1.** Шмуляючы, выцерці, пашкодзіць, падраць (пра вопратку). *А. локці.* **2.** Тое, што і *абмуляць. А. ногі.* ‖ *незак.* **абшму́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБШНА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* (разм.). Пільна, уважліва абшукаць. *А. усе закуткі.* ‖ *незак.* **абшна́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБШНЫ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* (разм.). Тое, што і *абшнарыць. А. усе куткі.* ‖ *незак.* **абшны́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБШУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць вобыск дзе-н., у каго-н. *А. кватэру арыштаванага.* **2.** *што.* Шукаючы, агледзець усё старанна. *А. усе кішэні. А. лес.* ‖ *незак.* **абшу́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБШЧЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -чы́н, *ж.* **1.** Самакіравальная арганізацыя жыхароў якой-н. тэрытарыяльнай адзінкі, форма аб'яднання людзей, якой характэрна калектыўная ўласнасць на сродкі вытворчасці, сумесная праца зураўняльным размеркаваннем (гіст.). *Сялянская а. Гарадская а.* **2.** Добраахвотнае аб'яднанне для сумеснай дзейнасці; садружнасць, брацтва, арганізацыя. *А. хрысціян.* ‖ *прым.* **абшчы́нны**, -ая, -ае.

**АБШЧЫПА́ЦЬ** *гл.* шчыпаць.

**АБШЧЫ́ПВАННЕ** *гл.* шчыпаць.

**АБШЫВА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Лодка з дошак, у адрозненне ад чаўна, які выдзёўбваецца з суцэльнага ствала дрэва. *Пераплыць на абшыванцы Дняпро.* ‖ *прым.* **абшыва́начны**, -ая, -ае.

**АБШЫ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** *гл.* абшыць. **2.** Тое, чым абшыта што-н. *Футравая а.* ‖ *прым.* **абшы́вачны**, -ая, -ае.

**АБШЫ́ЦЬ**, -шы́ю, -шы́еш, -шы́е; -шы́ты; *зак.* **1.** *што.* Прышыць па краях або паверхні; зашыць у што-н. *А. паліто футрам. А. пасылку палатном.* **2.** *што.* Абабіць дошкамі, бляхай і пад. *А. хату.* **3.** *каго-што.* Пашыць усё неабходнае для каго-н. (разм.). *А. усю сям'ю.* ‖ *незак.* **абшыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **абшыва́нне**, -я, *н.* і **абшы́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **абшы́вачны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Абшывачныя матэрыялы.*

**АБШЭ́РХЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Крыху абсохлы, зацвярдзелы. *Абшэрхлая зямля.*

**АБШЭ́РХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; абшэ́рх, -хла; *зак.* (разм.). Крыху абсохнуць зверху, зацвярдзець. *Зямля абшэрхла на ветры.*

**АБШЭ́ЎКА**, -і, *ДМ* -шэ́ўцы, *мн.* -і, -шэ́вак, *ж.* Ніжняя прышыўная частка ў адзенні, адварот манжэта. ‖ *прым.* **абшэ́вачны**, -ая, -ае.

**АБЫ́**[1], *злуч.* **1.** Далучае ўмоўныя і мэтавыя даданыя сказы; ужыв. пераважна з часц. «толькі». *Усё будзе добра, абы толькі на зямлі быў мір. Ты хочаш прымірыць усіх, абы ціха было.* **2.** Ужыв. з даданымі сказамі часу; адпавядае злуч. «толькі», «як толькі» (разм.). *Абы вольная хвіліна, то яе ўжо ў хаце няма.*

**АБЫ́**[2], *часц.* **1.** Надае значэнне непаўнацэннасці дзеянню, прадмету, паслабляе патрабаванні да дзеяння, прадмета. *Яму абы сказаць.* **2.** Ужыв. ў сказах, якія выражаюць пажаданне чаго-н. *Абы яны згадзіліся прыехаць.*

**АБЫ-АДКУ́ЛЬ**, *прысл.* Усё роўна адкуль. *А. не браць цытаты!*

**АБЫВА́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Сталы жыхар якой-н. мясцовасці (уст.). *А. горада. Сельскі а.* **2.** Чалавек, які жыве дробнымі асабістымі інтарэсамі. *Пératварыцца ў абывацеля.* ‖ *ж.* **абыва́целька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек. ‖ *прым.* **абыва́цельскі**, -ая, -ае. *А. настрой.*

**АБЫВА́ЦЕЛЬШЧЫНА**, -ы, *ж.* (пагард.). Вузкасць інтарэсаў, коснасць, адсутнасць шырокага кругагляду. *Трапіць у балота абывацельшчыны.*

**АБЫГРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* абы́граны; *зак.* **1.** *каго-што.* Перамагчы каго-н. у гульні. *А. у шахматы.* **2.** *што.* Наладзіць гучанне музычнага інструмента, пайграўшы на ім нейкі час (спец.). *А. скрыпку.* **3.** *што.* Выкарыстаць у сваіх мэтах для стварэння большага ўражання (разм.). *А. слова.* ‖ *незак.* **абы́грываць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЫ-ДЗЕ́**, *прысл.* Дзе папала, дзе ўздумаецца. *Бадзяцца а.*

**АБЫ-КАЛІ́**, *прысл.* Усё роўна калі, хоць калі. *Прыходзь а.*

**АБЫ-КО́ЛЬКІ**, *займ. няпэўны.* Усё роўна колькі; колькі можна.

**АБЫ-КУДЫ́**, *прысл.* Куды папала, куды-небудзь. *Ехаць а. На экскурсію паслалі не а., а ў сталіцу.*

**АБЫЛГА́ЦЬ**, -лгу́, -лжэ́ш, -лжэ́; -лжо́м, -лжаце́, -лгу́ць; -лжы́; -лга́ны; *зак., каго.* Абгаварыць каго-н., узвесці паклёп. *А. сумленнага чалавека.*

**АБЫМШЫ́ЦЬ**, -мшу́, -мшы́ш, -мшы́ць; -мшы́м, -мшыце́, -мша́ць; абы́мшаны; *зак., што.* Перакласці мохам бярвенне ў зрубе; пазатыкаць мохам шчыліны ў сценах. *А. хату.*

**АБЫМШЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які аброс, пакрыўся мохам. *Абымшэлая страха.*

**АБЫМШЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *зак.* Абрасці мохам. *Страха хаты абымшэла.*

**АБЫРЖАВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Пакрыты ржой, іржавы. *Абыржавелае жалеза.*

**АБЫРЖАВЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Пакрыцца ржой. *Металічны дах абыржавеў.*

**АБЫСКНЫ́** *гл.* вобыск.

**АБЫСЦІ́**, абыду́, абы́дзеш, абы́дзе; абышо́ў, -шла́, шло́; абыдзі́; *зак., каго-што.* **1.** Рухаючыся па крузе, прайсці вакол каго-, чаго-н. *Ён абышоў кругом сваю сялібу.* **2.** У ваеннай справе: зайсці ворагу з тылу або з фланга, каб акружыць яго. *Нямецка-фашысцкія войскі абышлі Брэсцкую крэпасць.* **3.** Прайсці бокам, мінуўшы каго-н.; абагнуць каго-, што-н. *Абысці вёску.* **4.** *перан.* Мінуць, не закрануць каго-, што-н. *Ні адна бяда яго не абыдзе.* **5.** *перан.* Знарок пазбегнуць, не закрануць чаго-н. у размове, апавяданні і пад. *А. недарэчны выпадак.* **6.** *перан.* Не палічыцца з чым-н., не прыняць пад увагу, не ўлічыць чаго-н. *Абысці закон, загад.* **7.** *перан.* Пакінуць без павышэння, узнагароды і пад. **8.** Прайсці па ўсёй прасторы чаго-н., наведаць розныя месцы. *З песняй абыду я нашу родную краіну.* **9.** Падысці да кожнага па чарзе. **10.** Пашырыцца, стаць усюды вядомым. *Навіна абышла ўвесь раён.* **11.** Падмануць, ашукаць. *Ён умеў абысці начальства.* **12.** Перамагчы, узяць верх; выперадзіць. *А. ўсіх на раённых спаборніцтвах.* ◊ **За вярсту абысці** *каго-што* (разм.) — не мець жадання сустрэцца з кім-, чым-н., убачыць каго-, што-н. ‖ *незак.* **абыхо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць *і* **абхо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **абыхо́джванне**, -я, *н.*, **абыхо́д**, -у, *М* -дзе, *м.* *і* **абхо́д**, -у, *М* -дзе, *м.*

**АБЫСЦІ́СЯ**, абыду́ся, абы́дзешся, абы́дзецца; абышо́ўся, -шла́ся, -шло́ся; абыдзі́ся; *зак.* **1.** Задаволіцца тым, што ёсць; здолець пражыць без каго-, чаго-н. *Без іх*

*абыдземся.* **2.** Так ці інакш паставіцца да каго-, чаго-н. *А. па-людску з чалавекам. Несправядліва абышліся з супрацоўнікам.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Запатрабаваць пэўных расходаў, якіх-н. затрат. *Паліто нядорага абышлося.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Закончыцца добра, без непрыемнасцей; уладзіцца. *Усё абышлося добра.* ‖ *незак.* **абыхо́дзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца *і* **абхо́дзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца. ‖ *наз.* **абыхо́джанне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**АБЫХО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** *гл.* абысці. **2.** Тое, што і *абыходак* (у 1 і 3 знач.).

**АБЫХО́ДАК**, -дку, *м.* **1.** Патрэбы штодзённага жыцця. *Мець грошы на а.* **2.** Неабходныя рэчы, абстаноўка (разм.). *Купіць а.* **3.** Карыстанне, ужытак. *Літаратура ўвайшла ў навуковы а.* ◊ **На першы абыходак** (разм.) — на першы час, на першую патрэбу.

**АБЫХО́ДЖАННЕ**, -я, *н.* **1.** Выяўленне сваіх адносін, манера паводзін у дачыненні да каго-н. *Просты ў абыходжанні. Далікатнае а.* **2.** Уменне карыстацца чым-н. *Умелае а. з інструментам.*

**АБЫХО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* **1.** *гл.* абысці. **2.** *перан., каго-што* і *без дап.* Кранаць пачуцці, хваляваць, турбаваць. *Гэта яго не абыходзіла.*

**АБЫХО́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Ветлівы, далікатны ў абыходжанні. *Абыходлівая і ласкавая медсястра.* ‖ *наз.* **абыхо́длівасць**, -і, *ж.*

**АБЫ-ХТО́**, абы-каго́, *займ. няпэўны.* **1.** Хто-н., хто папала, любы, кожны. *Гэту работу а. можа зрабіць.* **2.** (з адмоўем). Пра асобу, якая чым-н. выдзяляецца сярод іншых. *Ён не а.!*

**АБЫ-ЧЫ́Й**, абы-чыйго́, *займ. няпэўны.* Чый-н., чый папала.

**АБЫ-ШТО́**, абы-чаго́. **1.** *займ. няпэўны.* Што-н., што папала. **2.** *у знач. наз.* Глупства, абсурд, непатрэбшчына (разм.). *Пакінь гаварыць а.*

**АБЫ-Я́К**, *прысл.* Як папала, неахайна, нядбала. *Склалі хату а.*

**АБЫЯ́КАВЫ**, -ая, -ае. Які не выяўляе ніякай цікавасці да каго-, чаго-н., безуважны, раўнадушны да ўсяго. *А. да людзей чалавек. Абыякавыя адносіны да працы.* ‖ *наз.* **абыя́кавасць**, -і, *ж.*

**АБЫ-ЯКІ́**, -а́я, -о́е, *займ. няпэўны.* **1.** Які-небудзь, які папала. *Абы-якая замінка яго хвалявала.* **2.** Звычайны, усякі (разм.). *Хадзіць у абы-якіх ботах сароме́ўся, а на лепшыя грошай не было.*

**АБЮРАКРА́ЦІЦЦА**, -ра́чуся, -ра́цішся, -ра́ціцца; *зак.* Стаць бюракратам. *Нешта ж ты вельмі хутка абюракраціўся.* ‖ *незак.* **абюракра́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБЮРАКРА́ЦІЦЬ**, -ра́чу, -ра́ціш, -ра́ціць; -ра́чаны; *зак., каго-што* (разм.). Зрабіць бюракратам, бюракратычным. *А. работу канцылярыі.* ‖ незак. **абюракра́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБ'Я́ВА**, -ы, *мн.* -ы, аб'я́ў, *ж.* **1.** *гл.* аб'явіць. **2.** Паведамленне, якое даводзіцца да ўсеагульнага ведама. *Даць аб'яву ў газету.*

**АБ'ЯВІ́ЦЦА**, -яўлю́ся, -я́вішся, -я́віцца; *зак.* **1.** З'явіцца, выявіцца; знайсціся; падаць вестку. *Не гаруй, яшчэ а. твой брат.* **2.** Выказаць жаданне што-н. зрабіць. *Ехаць па дровы аб'явіўся старэйшы сын.* ‖ *незак.* **аб'яўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**АБ'ЯВІ́ЦЬ**, -яўлю́, -я́віш, -я́віць; -я́ўлены; *зак., каго-што.* Тое, што і *абвясціць. А. аб сходзе.* ‖ *незак.* **аб'яўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **аб'я́ва**, -ы, *мн.* -ы, аб'я́ў, *ж.* і **аб'яўле́нне** -я, *н.*

**АБЯГА́ЦЬ** *гл.* абегчы.

**АБ'ЯДА́ЦЦА** *гл.* аб'есціся.

**АБ'ЯДА́ЦЬ** *гл.* аб'есці.

**АБ'ЯДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* (разм.). Пра што-н. вельмі смачнае. *Пірог з грыбамі — гэта а.*

**АБ'ЯДНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які вядзе да аб'яднання, згуртавання. *А. з'езд.*

**АБ'ЯДНА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* аб'яднацца, аб'яднаць. **2.** Арганізацыя, саюз. *Вытворчае а. Літаратурнае а.*

**АБ'ЯДНА́НЫ**, -ая, -ае. Сумесны, злучаны. *Арганізацыя Аб'яднаных Нацый. Аб'яднаныя дзеянні ўсіх прагрэсіўных сіл.* ‖ *наз.* **аб'ядна́насць**, -і, *ж.*

**АБ'ЯДНА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Утварыць адно цэлае, злучыцца. *А. ў саюз жанчын.* **2.** Згуртавацца. *А. ў барацьбе за мір.* ‖ *незак.* **аб'ядно́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **аб'ядно́ўванне**, -я, *н.* і **аб'ядна́нне**, -я, *н.*

**АБ'ЯДНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* **1.** Утварыць адно цэлае з чаго-н. *А. два раёны ў адзін.* **2.** Згуртаваць. *А. сілы ўсіх прыхільнікаў міру.* ‖ *незак.* **аб'ядно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **аб'ядно́ўванне**, -я, *н.* і **аб'ядна́нне**, -я, *н.*

**АБЯДНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *збяднелы.* ‖ *наз.* **абядне́ласць**, -і, *ж.*

**АБЯДНЕ́ЦЬ** *гл.* бяднець.

**АБЯДНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, абедніце́, -ня́ць; абе́днены; *зак., каго-што.* **1.** Зрабіць бедным на што-н., у якіх-н. адносінах. *А. глебу.* **2.** Пазбавіць каго-, што-н. выразнасці, сілы, своеасаблівасці. *А. вобраз рамана.* ‖ *незак.* **абядня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АБЯЗБО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Зрабіць бязбольным, зняць боль. *А. зуб замарожваннем.* ‖ *незак.* **абязбо́льваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **абязбо́льванне**, -я, *н.*

**АБЯЗВЕ́ЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* Тое, што і *знявечыцца.* ‖ *незак.* **абязве́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБЯЗВЕ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго.* Тое, што і *знявечыць.* ‖ *незак.* **абязве́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЯЗВО́ДЗЕЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ее; *зак.* Стаць бязводным. *Пустыня абязводзела.*

**АБЯЗВО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Зрабіць бязводным. *А. драўніну. А. арганізм.* ‖ *незак.* **абязво́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абязво́джванне**, -я, *н.*

**АБЯЗВО́ЛЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* Стаць бязвольным; страціць здольнасць валодаць сабою. *Без працы чалавек абязволеў.*

**АБЯЗВО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго.* Пазбавіць волі; зрабіць бязвольным. *А. чалавека.* ‖ *незак.* **абязво́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЯЗГРО́ШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Застацца без грошай. *А. у дарозе.*

**АБЯЗГРО́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., каго* (разм.). Пакінуць без грошай; пазбавіць грошай. ‖ *незак.* **абязгро́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЯЗГУ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Пазбавіць гучання. ‖ *незак.* **абязгу́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБ'ЯЗДЖА́ЦЬ** *гл.* аб'ехаць, аб'ездзіць.

**АБЯЗДО́ЛЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* Стаць абяздоленым, няшчасным.

**АБЯЗДО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго.* Зрабіць няшчасным, пазбавіўшы самага неабходнага. *Вайна абяздоліла многіх людзей.* ‖ *незак.* **абяздо́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЯЗЗБРО́ІЦЬ**, -ро́ю, -ро́іш, -ро́іць; -ро́ены; *зак., каго-што.* **1.** Адабраць зброю, зрабіць бяззбройным. *А. канвой.* **2.** *перан.* Пазбавіць магчымасці і жадання пярэчыць, супраціўляцца чаму-н. *Спакойнасць яго мяне абяззброіла.* ‖ *незак.* **абяззбро́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЯЗЗУ́БЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* (разм.). Страціць зубы. *Абяззубеў пад старасць.*

**АБЯЗЛЕ́СЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *зак.* Страціць лясы, стаць бязлесным. *Абязлеселі нашы мясціны.*

**АБЯЗЛЕ́СІЦЬ**, 1 ас. адз. не ўжыв., -ле́сіш, -ле́сіць; -ле́сены; *зак., што.* Пазбавіць лясоў, зрабіць бязлесным. *А. край.*

**АБЯЗЛЮ́ДЗЕЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў бязлюдным, пустэльным. *Абязлюдзелая вёска.*

**АБЯЗЛЮ́ДЗЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *зак.* Стаць бязлюдным, пустэльным. *Пляж абязлюдзеў.*

**АБЯЗЛЮ́ДНЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *зак.* Тое, што і *абязлюдзець.*

**АБ'ЯЗНЫ́**, -а́я, -о́е. Такі, па якім аб'язджаюць; кружны. *А. шлях. Аб'язная дарога.*

**АБЯЗРЫ́БЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *зак.* Стаць бязрыбным. *Возера абязрыбела.*

**АБЯЛІ́ЦЬ**, абялю́, абе́ліш, абе́ліць; абе́лены; *зак., каго-што.* **1.** Зрабіць белым. *А. дрэвы ў садзе.* **2.** Зняць скуру з забітай жывёліны (разм.). *А. барана.* **3.** Зняць кару з дрэва. *А. ліпу.* **4.** *перан.* Апраўдаць каго-н., зняць падазрэнне з каго-н. *Цяжка а. таго, хто сам сябе ачарніў.* ‖ *незак.* **абе́льваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **абяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 4 знач.).

**АБЯРНУ́ЦЦА**, абярну́ся, абе́рнешся, абе́рнецца; абярні́ся; *зак.* **1.** Павярнуць галаву, тулава назад, убок, аглянуц-

ца. *А. на знаёмы голас.* **2.** Паваліцца на бок, перакуліцца; разліцца, высыпацца з перавернутай пасудзіны. *Малако абярнулася. Воз з сенам абярнуўся.* **3.** Схадзіць, з'ездзіць куды-н. і вярнуцца назад; справіцца (разм.). *За гадзіну можна два разы а.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Ператварыцца ў новую якасць, змяніцца; нечакана набыць іншы кірунак, сэнс. *Гора абярнулася ў радасць. Хто ведае, як усё абернецца.* **5.** *кім-чым* або *ў каго-што.* У казках і павер'ях: ператварыцца ў каго-, што-н. пры дапамозе чараў. *А. дрэвам.* **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Зрабіць абарот (пра капітал, грошы). *Капітал абярнуўся ў адзін год.* **7.** Змяніць веру. *А. ў іншую веру.* ‖ *незак.* **абаро́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБЯРНУ́ЦЬ**, абярну́, абе́рнеш, абе́рне; абярні́; абе́рнуты; *зак., што.* **1.** Паваліць на бок, перакуліць; разліць што-н., перакуліўшы пасудзіну. *А. воз са снапамі. А. збан з малаком.* **2.** Павярнуць назад, убок. *А. твар да суседа.* **3.** Накіраваць, пусціць у абарот. *А. капітал.* **4.** Ператварыць, змяніць, перавесці адну якасць у другую. *А. здарэнне ў жарт.* **5.** *кім-чым* або *ў каго-што.* У казках і павер'ях: ператварыць у каго-, што-н. пры дапамозе чараў. *А. у воўка. А. у камень.* **6.** Схіліць да чаго-н. *А. у сваю веру.* **7.** Прыдаць іншы кірунак, змяніць (пра ход якой-н. справы, пра абставіны). *А. справу на сваю карысць.* ‖ *незак.* **абаро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЯРЭ́МАК**, -мка, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* Ноша ў такім памеры (аб'ёме), якую можна ўзяць, панесці, абхапіўшы рукамі; ахапак, бярэмя. *Цягалі сена віламі і абярэмкамі. Схапіць у а.* (абхапіўшы рукамі). *А. дроў. А. саломы.*

**АБЯСКО́ЛЕРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* **1.** Стаць бясколерным, менш яркім па афарбоўцы. *Тканіна абясколерылася.* **2.** *перан.* Страціць яркія індывідуальныя асаблівасці, стаць невыразным. ‖ *незак.* **абяско́лервацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АБЯСКО́ЛЕРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць бясколерным, зменшыць яркасць афарбоўкі. *А. тканіну.* **2.** *перан., каго-што.* Пазбавіць яркіх індывідуальных асаблівасцей, зрабіць невыразным. ‖ *незак.* **абяско́лерваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абяско́лерванне**, -я, *н.* і **абяско́леранне**, -я, *н.*

**АБЯСКРО́ВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* Страціць многа крыві. ‖ *наз.* **абяскро́ўленне**, -я, *н.*

**АБЯСКРО́ВІЦЬ**, -ро́ўлю, -ро́віш, -ро́віць; -ро́ўлены; *зак., каго-што.* **1.** Выпусціць усю кроў або многа крыві. **2.** *перан.* Зрабіць бяссільным, нежыццяздольным. *А. варожую армію.* Пазбавіць выразнасці, яркасці. *А. вобраз гераіні.* ‖ *незак.* **абяскро́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абяскро́ўліванне**, -я, *н.*

**АБЯСКРЫ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* **1.** Адарваць, адрэзаць крылы, пазбавіць магчымасці лятаць. **2.** *перан.* Пазбавіць творчых сіл, натхнення. *А. дух паэта.* ‖ *незак.* **абяскры́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЯСПА́МЯЦЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* (разм.). Страціць памяць. *Абяспамяцеў пад старасць.*

**АБЯСПЛО́ДЗЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзее; *зак.* Стаць бясплодным.

**АБЯСПЛО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што.* Зрабіць бясплодным. *А. глебу.* ‖ *незак.* **абяспло́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абяспло́джванне**, -я, *н.*

**АБЯССІ́ЛЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* Тое, што і *знясілець. Хворы зусім абяссілеў.* ‖ *наз.* **абяссі́ленне**, -я, *н.*

**АБЯССІ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Зрабіць бяссільным. *Хвароба яго абяссіліла.* ‖ *незак.* **абяссі́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абяссі́льванне**, -я, *н.*

**АБЯССЛА́ВІЦЬ**, -ла́ўлю, -ла́віш, -ла́віць; -ла́ўлены; *зак., каго-што* (кніжн.). Знявславіць, зняважыць, зганьбаваць. *Злыя языкі абяссла́вілі чалавека.* ‖ *незак.* **абяссла́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АБЯССМЕ́РЦІЦЬ**, -рчу, -рціш, -рціць; -рчаны; *зак., каго-што* (кніжн.). Зрабіць незабыўным у памяці народа, праславіць. *А. імя паэта.*

**АБЯССЭ́НСІЦЬ**, -ншу, -нсіш, -нсіць; -ншаны; *зак., што.* Пазбавіць сэнсу што-н., зрабіць бяссэнсавым. *А. слова.* ‖ *незак.* **абяссэ́ншваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абяссэ́ншванне**, -я, *н.*

**АБЯСТЛУ́СЦІЦЬ**, -лу́шчу, -лу́сціш, -лу́сціць; -лу́шчаны; *зак., што* (спец.). Выдаліць тлушч, тлушчавыя рэчывы. *А. гліну.* ‖ *незак.* **абястлу́шчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абястлу́шчванне**, -я, *н.*

**АБЯСХЛЕ́БЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* (разм.). Застацца без хлеба.

**АБЯСХЛЕ́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., каго* (разм.). Пазбавіць хлеба.

**АБЯСЦЭ́НІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніцца; *зак.* Страціць каштоўнасць. *Грошы абясцэніліся.* ‖ *незак.* **абясцэ́ньвацца**, -аецца.

**АБЯСЦЭ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што.* Пазбавіць каштоўнасці. *А. тавар.* ‖ *незак.* **абясцэ́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абясцэ́ньванне**, -я, *н.* і **абясцэ́ненне**, -я, *н.*

**АБЯСШКО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што.* Зрабіць бясшкодным. *А. бомбу.* ‖ *незак.* **абясшко́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **абясшко́джванне**, -я, *н.* і **абяско́джанне**, -я, *н.*

**АБ'ЯЎЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* аб'явіць. **2.** Паведамленне, аб'ява аб чым-н. у вуснай або пісьмовай форме, абвяшчэнне.

**АБ'ЯЎЛЯ́ЦЦА** *гл.* аб'явіцца.

**АБ'ЯЎЛЯ́ЦЬ** *гл.* аб'явіць.

**АБЯЦА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Абяцанне (часцей нявыкананае). *Абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць* (прыказка). ◊ **Карміць абяцанкамі** *каго* (разм., неадабр.) — даваць абяцанні што-н. зрабіць, але не выконваць іх.

**АБЯЦА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Добрахвотнае абавязацельства зрабіць што-н. *Выконваць абяцанні. Парушаць а. Узяць а. з каго-н.*

**АБЯЦА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* і *незак.* (разм.). Тое, што і *абяцаць* (у 1 знач.). *Абяцаўся прыехаць у госці.*

**АБЯЦА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* і *незак., каго-што* і *з інф., каму.* **1.** Даць (даваць) якое-н. абяцанне. *Абяцалі прыняць на працу.* **2.** *незак.* Падаваць надзеі на што-н., выклікаць якія-н. спадзяванні. *Вечар абяцае быць цёплым.* ‖ *зак.* таксама **паабяца́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны (да 1 знач.; разм.).

**АВАДЗЕ́НЬ**, -дня́, *мн.* -дні́, -днёў, *м.* Двухкрылае насякомае, лічынкі якога паразітуюць у целе жывёлы. ‖ *прым.* **аваднёвы**, -ая, -ае.

**АВА́Л**, -а, *м.* Фігура, якая ўтворана замкнутай крывой лініяй і нагадвае формай падоўжаны круг. *Прыгожы а. твару.* ‖ *прым.* **ава́льны**, -ая, -ае.

**АВАЛО́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** *кім-чым.* Узяць сілай, захапіць, завалодаць. *А. крэпасцю.* **2.** *перан., кім-чым.* Падпарадкаваць сабе, надаць чаму-н. патрэбны кірунак. *А. увагай. А. сабой* (вярнуць самавалоданне, супакоіцца). **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан., кім-чым.* Ахапіць, апанаваць (пра стан, думкі, пачуцці). *Стома авалодала ўсім целам.* **4.** *перан., чым.* Трывала засвоіць што-н., вывучыць, навучыцца карыстацца. *А. замежнай мовай. А. прафесіяй.* ‖ *незак.* **авало́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **авало́данне**, -я, *н.*

**АВАНГА́РД**, -а, *М* -дзе, *м.* **1.** Частка войска або флоту, якая знаходзіцца наперадзе галоўных сіл. **2.** *перан.* Вядучая, найбольш свядомая і актыўная частка якой-н. грамадскай групы, арганізацыі. ◊ **У авангардзе** — наперадзе, у першых радах. ‖ *прым.* **аванга́рдны**, -ая, -ае.

**АВАНГАРДЫ́ЗМ**, -у, *м.* Агульная назва розных плыней у мастацтве 20 ст., якія парываюць з рэалізмам і шукаюць новыя формы мастацкага выяўлення. ‖ *прым.* **авангарды́сцкі**, -ая, -ае.

**АВАНГАРДЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік авангардызму. ‖ *ж.* **авангарды́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АВАНЗА́ЛА**, -ы, *мн.* -ы, -за́л, *ж.* Пярэдняя зала, пакой перад галоўнай залай у вялікіх грамадскіх памяшканнях, палацах. ‖ *прым.* **аванза́льны**, -ая, -ае.

**АВАНЛО́ЖА**, -ы, *мн.* -ы, лож, *ж.* Невялікае памяшканне перад уваходам у тэатральную ложу.

**АВАНПО́РТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Абароненая ад хваль знешняя частка порта. ‖ *прым.* **аванпо́ртны**, -ая, -ае.

**АВАНПО́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Перадавы вартавы пост, а таксама мес-

ца размяшчэння такога паста. ‖ *прым.* **аванпо́ставы**, -ая, -ае *і* **аванпо́сны**, -ая, -ае.

**АВА́НС**, -у, *м.* Грошы або іншыя маёмасныя каштоўнасці, што выдаюцца ў лік будучых плацяжоў. *Атрымаць а. Грашовы а.* ‖ *прым.* **ава́нсавы**, -ая, -ае.

**АВАНСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Даць (даваць) аванс каму-, чаму-н. *А. рабочых. А. прадпрыемства.*

**АВА́НСАМ**, *прысл.* У якасці авансу; наперад, загадзя, у лік будучага разліку. *Атрымаць а. грошы.*

**АВАНСЦЭ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -сцэ́н, *ж.* Пярэдняя, адкрытая частка сцэны, што выступае ў залу.

**АВАНТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ту́р, *ж.* **1.** Рызыкоўная, беспрынцыповая справа, распачатая ў разліку на выпадковы поспех. *Ваенная а. Палітычная а.* **2.** Сварка, скандал. *Учыніць авантуру.* ‖ *прым.* **авантурны**, -ая, -ае.

**АВАНТУ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* авантура. **2.** Прыгодніцкі. *А. раман.* ‖ *наз.* **авантурнасць**, -і, *ж.*

**АВАНТУРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Схільнасць да авантур (у 1 знач.). ‖ *прым.* **авантурыстычны**, -ая, -ае. *Авантурыстычная палітыка.*

**АВАНТУРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Беспрынцыповы дзялок, прайдзісвет, які займаецца авантурамі. ‖ *ж.* **авантуры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **авантуры́сцкі**, -ая, -ае *і* **авантурыстычны**, -ая, -ае.

**АВА́РЦЫ**, -аў, *адз.* -рац, -рца, *м.* Народ, які складае частку насельніцтва паўночнага Каўказа (Дагестана, Азербайджана і інш.). ‖ *ж.* **ава́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **ава́рскі**, -ая, -ае.

**АВАРЫ́ЙНАСЦЬ**, -і, *ж.* Наяўнасць аварый. *Змагацца з аварыйнасцю на транспарце.*

**АВАРЫ́ЙШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). **1.** Работнік аварыйнай службы. **2.** Нядбайны работнік, які дапускае аварыі.

**АВА́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Пашкоджанне, выхад са строю якога-н. механізма, машыны ў час руху, работы. *Пацярпець аварыю* (таксама перан.: пра няўдачу, правал якой-н. справы). ‖ *прым.* **авары́йны**, -ая, -ае. *Аварыйная служба* (па ліквідацыі аварый).

**АВА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Працяглыя, бурныя воплескі, радасныя воклічы як адабрэнне чаго-н., захапленне чым-н. (звычайна на тэатральных пастаноўках, мітынгах). *Гучныя авацыі.*

**АВЕ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Свойская жвачная жывёла, якая дае воўну, мяса, малако; самка барана. *Стрыжка авечак.* **2.** *перан.* Той, хто выдае сябе за ціхага, паслухмянага чалавека **3.** *перан.* Пра някемлівага, дурнаватага чалавека (часцей пра асоб жаночага полу). ◊ **Блудная (аблудная) авечка** — пра чалавека, які збіўся з правільнага жыццёвага шляху, адарваўся ад свайго асяроддзя, сям'і і інш. *Прыкідвацца авечкай.* ‖ *прым.* **аве́чы**, -ая, -ае. *А. сыр.*

**АВЕЧКАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *авечкагадовец.*

**АВЕЧКАГАДО́ВЕЦ**, -до́ўца, *мн.* -до́ўцы, -до́ўцаў, *м.* Спецыяліст па авечкагадоўлі.

**АВЕЧКАГАДО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Развядзенне авечак як галіна жывёлагадоўлі. *Танкарунная а.* ‖ *прым.* **авечкагадо́ўчы**, -ая, -ае. *Авечкагадоўчая ферма.*

**АВЕ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Авечы хлеў; аўчарня.

**АВЕ́ЯЦЬ**, аве́ю, аве́еш, аве́е; аве́яў, аве́яла; аве́й; аве́яны; *зак., каго-што.* **1.** Тое, што і *абвеяць.* **2.** *перан.* Акружыць, стварыць вакол каго-, чаго-н. атмасферу пашаны (высок.). *А. славай.* ‖ *незак.* **авява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АВЁС**, аўса́, часцей *мн.* (у знач. засеянага гэтым злакам поля) аўсы́, -о́ў, *м.* Яравая збажына, зерне якой ідзе на корм коням і на крупы; зерне гэтага злака. *Даць каню аўса. Не гані каня дубцом, а гані аўсом* (прыказка). *Аўсы зазеляналі.* ‖ *прым.* **аўся́ны**, -ая, -ае. *А. кісель. Аўсяная мука.*

**АВІТАМІНО́З**, -у, *м.* (спец.). Захворванне, якое развіваецца пры недахопе вітамінаў у ежы. ‖ *прым.* **авітаміно́зны**, -ая, -ае.

**АВІЯ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае: 1) знач. слова «авіяцыйны», напр.: *авіязавод, авіяпрамысловасць, авіябаза, авіядэсант, авіямеханік, авіяшкола;* 2) знач. слова «паветраны», напр.: *авіядэсант, авіясувязь, авіятранспарт.*

**АВІЯКАНСТРУ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Канструктар лятальных апаратаў і рухавікоў да іх. ‖ *прым.* **авіяканстру́ктарскі**, -ая, -ае.

**АВІЯМАДЭЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Канструяванне, пабудова і запуск мадэлей самалётаў, планёраў і іншых лятальных апаратаў. ‖ *прым.* **авіямадэ́льны**, -ая, -ае. *А. гурток.*

**АВІЯМАДЭЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца авіямадэлізмам. ‖ *ж.* **авіямадэлі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **авіямадэлі́сцкі**, -ая, -ае.

**АВІЯМАДЭ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *м.* Мадэль лятальнага апарата. ‖ *прым.* **авіямадэ́льны**, -ая, -ае.

**АВІЯНО́СЕЦ**, -но́сца, *мн.* -но́сцы, -но́сцаў, *м.* Ваенны карабель, які служыць плывучай базай для баявых самалётаў, прыстасаваны для іх узлёту, пасадкі і перавозкі.

**АВІЯНО́СНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да авіяцыі, што базіруецца на авіяносцах. *Авіяноснае злучэнне.*

**АВІЯПО́ШТА**, -ы, *ДМ* -шце, *ж.* Перавозка пошты паветраным транспартам; паветраная пошта.

**АВІЯ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца авіяцыяй, лётнай справай; лётчык. ‖ *прым.* **авія́тарскі**, -ая, -ае.

**АВІЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Сукупнасць лятальных апаратаў; паветраны флот. *Ваенная а. Налёт авіяцыі.* **2.** Тэорыя і практыка перамяшчэння ў паветры на лятальных апаратах, цяжэйшых за паветра: самалётах, верталётах і пад. ‖ *прым.* **авіяцы́йны**, -ая, -ае.

**АВО́Й**, *выкл.* (разм.). Выгук пры выказванні здзіўлення, захаплення і пад. *Авой, якая хмара!*

**АВО́ХЦІ**, *выкл.* Выгук пры выказванні жалю, бядоты. ◊ **Авохці мне** (разм.) — ужыв. як выказванне здзіўлення, задавальнення, спачування і інш. *Авохці мне! Як там прыгожа!*

**АВЯВА́ЦЬ** *гл.* авеяць.

**АГА́**. **1.** *часц.* Ужыв. пры выказванні згоды, сцвярджэння, пры ўспамінанні чаго-н., пры перамене тэмы гутаркі, для выказу ўшчування, папроку. *Чуеш? Ага, чую. Усе прыехалі? Ага. Ага, спазніўся?* **2.** *выкл.* Вокліч з пераможнай інтанацыяй; выказвае здагадку, радаснае здзіўленне; выражае насмешку, зларадніцтва, пагрозу і пад. *Ага! Папаўся! Ага! Ты тут! Ага, разумею. А ён пераможа. Ага!*

**АГАБЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ляв́аны; *зак., што.* Зрабіць гэблем роўнай, гладкай паверхню чаго-н. *А. дошкі.* ‖ *незак.* **агаблёўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **агаблёўванне**, -я, *н.*

**АГА́ВА**, -ы, *ж.* Шматгадовая травяністая трапічная расліна з шорсткім буйным лісцем, якая разводзіцца як дэкаратыўная і для здабывання валакна. ‖ *прым.* **ага́вавы**, -ая, -ае. *Сямейства агававых* (наз.).

**АГАВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -во́рышся, -во́рыцца; *зак.* **1.** Зрабіць агаворку; загадзя папярэдзіць, растлумачыць. *Перш як чытаць даклад, трэба а.* **2.** Памылкова сказаць не тое, што трэба. *А. ад хвалявання.* ‖ *незак.* **агаво́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АГАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -во́рыш, -во́рыць; -во́раны; *зак., што.* Спецыяльна адзначыць, зрабіць агаворку. *А. сваю нязгоду.* ‖ *незак.* **агаво́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АГАВО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Дадатковае тлумачэнне, заўвага. *Згадзіцца без усякіх агаворак.* **2.** Памылкова ўжытае слова або выраз. *Выпадковая а.* ‖ *прым.* **агаво́рачны**, -ая, -ае.

**АГАЛАСІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ло́сіцца; *зак.* Напоўніцца якімі-н. моцнымі гукамі (пра паветра, прастору). *Лес агаласіўся спевам птушак. Вуліца агаласілася плачам.* ‖ *незак.* **агало́швацца**, -аецца *і* **агалаша́цца**, -а́ецца.

**АГАЛАСІ́ЦЬ**, -лашу́, -ло́сіш, -ло́сіць; -ло́шаны; *зак., што.* **1.** Напоўніць якімі-н. гукамі. *А. лес песнямі.* **2.** Урачыста абвясціць, абнародаваць. *А. тэкст прывітальнай тэлеграмы.* ‖ *незак.* **агало́шваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.) *і* **агалаша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **агалашэ́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

праведзеным; здарыцца. *Раніцай на заводзе адбыўся мітынг. Прэм'ера спектакля адбылася вечарам.* ‖ *незак.* **адбыва́цца**, -а́ецца.

**АДБЫ́ЦЬ**, -бу́ду, -бу́дзеш, -бу́дзе; -бы́ў, -была́, -ло́; -бу́дзь; *зак.* **1.** *што.* Выканаць якую-н. павіннасць, абавязак; прабыць вызначаны тэрмін дзе-н. *А. чаргу на дзяжурстве. А. тэрмін пакарання.* **2.** Выканаць што-н. фармальна, як бы з-пад прымусу. *А. заняткі.* **3.** Правесці, зрабіць, закончыць што-н. *А. вяселле.* **4.** Абысціся, абмежавацца чым-н. *Абед адным хлебам не адбудзеш* (прымаўка). ◊ **Не адбудзе і не прыбудзе** (разм.) — не будзе ні выгоды, ні страты. ‖ *незак.* **адбыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **адбыва́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.). ‖ *наз.* **адбыццё**, -я́, *н.* (да 1—3 знач.).

**АДБЯГА́ЦЦА** *гл.* адбегчыся.

**АДБЯГА́ЦЬ** *гл.* адбегчы.

**АДБЯЛІ́ЦЬ**, -бялю́, -бе́ліш, -бе́ліць; -бе́лены; *зак., што.* Зрабіць белым, выбеліць. *А. палатно.* ‖ *незак.* **адбе́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адбе́льванне**, -я, *н.* *і* **адбе́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* *Адбельванне драўніннай масы.* ‖ *прым.* **адбе́льны**, -ая, -ае *і* **адбе́лачны**, -ая, -ае. *Адбельны цэх. Адбелачныя матэрыялы.*

**АДВА́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., каго (што)* (разм.). Вабячы, адцягнуць, адвесці. *А. паляўнічага.* ‖ *незак.* **адва́бліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВА́ГА**, -і, *ДМ* -ва́зе, *ж.* Смеласць, рашучасць. *Узнагародзіць за адвагу. А. гарады бярэ* (прыказка).

**АДВА́ДЗІЦЬ**, -ва́джу, -ва́дзіш, -ва́дзіць; -ва́джаны; *зак., каго-што, ад чаго* (разм.). Адвучыць ад якой-н. прывычкі, ад хаджэння да каго-н. або куды-н.; прымусіць перастаць што-н. рабіць, адвыкнуць ад чаго-н. *А. ад курэння.* ‖ *незак.* **адва́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВАДЗЯНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Стаць вадзяністым, звадзянець. *Чарніла адвадзянела.*

**АДВАЁЎВАЦЬ** *гл.* адваяваць.

**АДВА́ЖНЫ**, -ая, -ае. Смелы, рашучы. *А. баец.* ‖ *наз.* **адва́жнасць**, -і, *ж.*

**АДВА́ЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *зак., на што* і *з інф.* Праявіць адвагу, рашучасць, асмеліцца. *А. на смелы ўчынак.* ‖ *незак.* **адва́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДВА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што* і *чаго.* Аддзяліўшы, узважыць частку чаго-н. *А. кілаграм цукру.* ‖ *незак.* **адва́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВАКА́Т**, -а, *М* -ка́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Юрыст, які абараняе на судзе чые-н. інтарэсы; абаронца. *Наняць адваката.* ‖ *прым.* **адвака́цкі**, -ая, -ае.

**АДВАКАТУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** *зб.* Адвакаты. *Абласная а.* **2.** Дзейнасць адваката. *Займацца адвакатурай.*

**АДВАКА́ЦТВА**, -а, *н.* Дзейнасць адваката.

**АДВА́Л**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у, *гл.* адваліць (да 1 знач.). **2.** -а. Прыстасаванне ў плузе для адразання і пераварочвання пласта зямлі. **3.** -а. Перавернуты пласт зямлі. **4.** -а. Насып з пустых парод, шлаку і пад. на горных распрацоўках (спец.). ‖ *прым.* **адва́льны**, -ая, -ае (да 2—4 знач.). ◊ **Да адвалу** (разм.) — наесціся да сыці.

**АДВАЛАЧЫ́**, -лаку́, -лачэ́ш, -лачэ́; -лачо́м, -лачаце́, -лаку́ць; -ло́к, -лакла́, -лакло́; -лачы́; -ло́чаны; *зак., каго-што* (разм.). Валочачы, адцягнуць. *А. мяшок з бульбай.* ‖ *незак.* **адвалака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДВАЛІ́ЦЦА**, -валю́ся, -ва́лішся, -ва́ліцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Аддзяліўшыся, адарваўшыся, упасці. *Кавалак тынку адваліўся.* **2.** Схіліць тулава назад; адкінуцца (разм.). *А. на спінку крэсла.* **3.** Наеўшыся, адсунуцца ад стала, пакінуць есці (разм.). *А. ад клёцак.* **4.** *перан.* Паменшаць (пра мароз, спёку і пад.). *Мароз адваліўся, і пайшоў снег.* **5.** *перан.* Знікнуць, прайсці (пра адчуванні, пачуцці). *Уся нуда адвалілася ад яго.* ‖ *незак.* **адва́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДВАЛІ́ЦЬ**, -валю́, -ва́ліш, -ва́ліць; -ва́лены; *зак., што.* **1.** Адвярнуць, адкінуць што-н. ад чаго-н. *А. камень ад дзвярэй. А. завалу і адчыніць вароты.* **2.** Выдзеліць, даць, адрэзаць, расшчодрыўшыся (разм., іран.). *А. ладны кавалак сала. А. сто тысяч рублёў.* **3.** *ад чаго* і *без дап.* Адысці, адплысці, адляцець. *Параход плаўна адваліў ад прыстані.* ‖ *незак.* **адва́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адва́льванне**, -я, *н.* (да 1 знач.), **адва́л**, -у, *м.* (да 1 знач.) *і* **адва́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* (да 1 знач.) ‖ *прым.* **адва́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**АДВА́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вадкасць, насычаная варам таго, што ў ёй варылася. *Рысавы а.* ‖ *прым.* **адварны́**, -а́я, -о́е.

**АДВАРАЖЫ́ЦЬ**, -ражу́, -ро́жыш, -ро́жыць; -ро́жаны; *зак., каго-што.* Варажбой зняць чары з каго-н. ‖ *незак.* **адваро́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВА́РАНЫ**, -ая, -ае. Вараны, звараны. *Адваранай бульба. Адваранае мяса.*

**АДВАРО́Т**, -у, *М* -ро́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адагнуты і прыгладжаны край адзення ці абутку. *Пінжак з шырокімі адваротамі.* **2.** Адваротны бок чаго-н. (кнігі, паштоўкі і пад.). *Подпіс на адвароце здымка.*

**АДВАРО́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які накіраваны ў супрацьлеглы папярэдняму руху бок. *Адваротнае вярчэнне. Кінуцца ў а. бок.* **2.** Які прыводзіць да зыходнага выніку. *А. хімічны працэс. Адваротнае ператварэнне тавару ў грошы.* **3.** Супрацьлеглы. *Адыманне ёсць дзеянне, адваротнае складанню. А. сэнс.* **4.** Супрацьлеглы вонкаваму, левы бок прадмета. *Распісацца на адваротным баку паштоўкі. Доказ ад адваротнага* (наз.). ◊ **Адваротны бок медаля** — другі, супрацьлеглы, ценявы, непажаданы, адмоўны бок якой-н. справы.

**АДВАРО́ЧВАЦЦА** *гл.* адвярнуцца.

**АДВАРО́ЧВАЦЬ** *гл.* адвярнуць.

**АДВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ва́рыцца; *зак.* Зварыцца. *Бульба адварылася.* ‖ *незак.* **адва́рвацца**, -аецца.

**АДВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -ва́рыш, -ва́рыць; -ва́раны; *зак., што.* Зварыць. *А. грыбы.* ‖ *незак.* **адва́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВАСТРЫ́ЦЬ**, -вастру́, -во́стрыш, -во́стрыць; -во́страны; *зак., што.* Навастрыць, завастрыць. *А. косы. А. зброю* (перан.: падрыхтавацца да дзеянняў). ‖ *незак.* **адво́стрываць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адво́стрыванне**, -я, *н.*

**АДВАЯВА́ЦЦА**, -ваю́юся, -ваю́ешся, -ваю́ецца; -ваю́йся; *зак.* (разм.). Тое, што і *адваяваць* (у 3 знач.). *Адваяваўся салдат.*

**АДВАЯВА́ЦЬ**, -ваю́ю, -ваю́еш, -ваю́е; -ваю́й; -ваява́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Вярнуць у барацьбе, у вайне. *А. сваю зямлю ў захопнікаў.* **2.** *перан.* Дамагчыся чаго-н. настойлівасцю. *А. пераходны сцяг.* **3.** Кончыць ваяваць (разм.). *Салдат сваё адваяваў.* **4.** Пазбавіцца сілы, моцы ваяваць (разм.). *Я ўжо стары, сваё адваяваў.* ‖ *незак.* **адваёўваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**АДВЕ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** *каго-што.* Наведаць каго-, што-н., пабываць у каго-н. дзе-н. *А. хворага сябра. А. родны кут.* **2.** *чаго.* Пакаштаваць, паспытаць. *А. спелых груш.* **3.** *чаго.* Спазнаць, зведаць, паспытаць. *А. шчасця.* ‖ *незак.* **адве́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адве́дванне**, -я, *н.*

**АДВЕ́ДЗІНЫ**, -дзін. Сяброўскае наведванне каго-н., звычайна з якой-н. нагоды. *Прыйсці ў а.*

**АДВЕ́ДКІ** *і* **ВО́ДВЕДКІ**, -дак. **1.** Наведванне жанчыны, якая нарадзіла дзіця. *Прыйсці ў а. з пірагамі.* **2.** Тое, што і *адведзіны.*

**АДВЕ́ЗЦІ**, -вязу́, -вязе́ш, -вязе́; -вязём, -везяце́, -вязу́ць; -вёз, -ве́зла; -вязі́; -ве́зены; *зак., каго-што.* Везучы, даставіць каго-, што-н.; завезці куды-н.; везучы, убраць на пэўную адлегласць. *А. госця дадому. А. з дарогі каменне.* ‖ *незак.* **адво́зіць**, -во́жу, -во́зіш, -во́зіць. ‖ *наз.* **адво́з**, -у, *м.* *і* **адво́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (разм.).

**АДВЕ́ЙВАЦЬ** *гл.* адвеяць.

**АДВЕ́КУ**, *прысл.* Спрадвеку, з даўніх часоў. *Тут ваўкі а. вядуцца.*

**АДВЕ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Невялікі груз на шнуры або нітцы для вызначэння вертыкальнага напрамку; грунтвага. *Шнур з адвесам.*

**АДВЕ́СІЦЬ**, -ве́шу, -ве́сіш, -ве́сіць; -ве́шаны; *зак., што.* Адкрыць што-н. завешанае; зняць або адсунуць убок тое, чым было што-н. завешана. *А. акно.* ◊ **Адвесіць губы** (разм., неадабр.) — надзьмуцца, пакрыўдзіцца. ‖ *незак.* **адве́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВЕСЛАВА́ЦЬ**, -вяслу́ю, -вяслу́еш, -вяслу́е; -вяслу́й; *зак.* Вяслуючы, аддаліцца, адплысці ад чаго-н. *А. ад берага.* ‖ *незак.* **адвяслоўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВЕ́СЦІ**, -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзём, -ведзяце́; адвёў, -вяла́, -вяло́;

адвядзі́; *зак., каго.* **1.** Ведучы, суправаджаючы, даставіць у якое-н. месца. *Ён адвёў хлопца пад плот і пасадзіў на траве.* **2.** Перавесці (войскі і пад.) на іншую пазіцыю, перамясціць назад, у тыл. *А. атрад на поўнач ад вёскі.* **3.** Завесці на некаторую адлегласць ад каго-, чаго-н. *А. ўбок.* **4.** Адхіліць; змяніць напрамак руху чаго-н., накіраваць убок ад каго-, чаго-н. *А. рукі. Думаюць, куды б а. ваду з поля.* **5.** Змяніць напрамак позірку, перастаўшы глядзець на што-н. *А. вочы.* **6.** *перан.* Даць іншы кірунак, перавесці (увагу, думку і пад.) на што-н. іншае. **7.** *перан.* Папярэдзіць што-н. небяспечнае, непрыемнае. *А. небяспеку ад сваіх.* **8.** *перан.* Адхіліць што-н. неадпаведнае, непрыдатнае. *А. кандыдатуру.* **9.** Даць у чыё-н. распараджэнне; прызначыць, выдзеліць для якой-н. мэты. *Гасцінны гаспадар адвёў нам два пакойчыкі.* **10.** Надаць тое або іншае значэнне, вызначыць ролю, месца каму-, чаму-н. **11.** Правесці, адчарціць. *А. палі ў сшытку.* ◊ **Адвесці вочы** — хітруючы, адцягнуць чыю-н. увагу ад чаго-н. **Адвесці душу** — падзяліцца з кім-н. тым, што набалела; выказаць каму-н. свае патаемныя думкі; задаволіць якое-н. моцнае жаданне. **Вачэй не адвесці** — аб чым-н. вельмі прыгожым, прывабным. ‖ *незак.* **адво́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ наз. **адво́д**, -у, *М* -дзе, *м. і* **адвядзе́нне**, -я, *н.*

**АДВЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Спрадвечны; які існуе з даўніх часоў. *Адвечныя балоты. Адвечная таямніца.* ‖ *наз.* **адве́чнасць**, -і, *ж.*

**АДВЕ́ШВАЦЬ** *гл.* адвесіць.

**АДВЕ́ЯЦЬ**, -ве́ю, -ве́еш, -ве́е; -ве́й; -ве́яны; *зак., што.* **1.** Выдаліць веяннем мякіну і пад. са збожжа. *А. шалупінне ад зерня.* **2.** Кончыць веяць. ‖ *незак.* **адве́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВЁРТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Інструмент для закручвання і выкручвання шрубаў. ‖ *прым.* **адвёртачны**, -ая, -ае.

**АДВІВА́ЦЬ** *гл.* адвіць.

**АДВІ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Адмаўляцца, ухіляцца ад чаго-н. *А. ад даручэнняў.* ‖ *зак.* **адвільну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **адві́льванне**, -я, *н.*

**АДВІСЕ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -сі́цца; *зак.* (разм.). Павісеўшы пэўны час, разгладзіцца. *Сукенка адвісела́ся.*

**АДВІ́СЛЫ**, -ая, -ае. Які адвіс, апусціўся, адцягнуўся ўніз; абвіслы. *Адвіслыя кішэні. Адвіслыя губы.* ‖ *наз.* **адві́сласць**, -і, *ж.*

**АДВІ́СНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ві́сне; -ві́с, -ві́сла; *зак.* Апусціцца, страціўшы пругкасць. *Шчокі адвіслі.* ‖ *незак.* **адвіса́ць**, -а́е.

**АДВІТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які бывае пры адвітанні; развітальны. *А. поціск рук.*

**АДВІТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Развітацца, абмяняцца адвітальнымі словамі, поціскам рук і пад. *Госці адвіталіся і пайшлі.* ‖ *незак.* **адві́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **адвіта́нне**, -я, *н.*

**АДВІ́ЦЬ**, адаўю, адаўе́ш, адаўе́; адаўём, адаўяце́, адаўю́ць; адвіў, -віла́, -віло́; -ві́; -ві́ты; *зак., што* і *чаго.* Развіваючы, аддзяліць частку навітага. *А. частку пражы на клубок.* ‖ *незак.* **адвіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДВО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** *гл.* адвесці. **2.** Заява аб адхіленні каго-н. ад удзелу ў чым-н. *Даць а. кандыдату.* **3.** Адгалінаванне (у трубе, электрасетцы і пад.). *А. ад батарэі.* ◊ **Для адводу вачэй** (разм.) — з мэтай адцягнуць увагу ад чаго-н.

**АДВО́ДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* **1.** Галінка або частка кораня з вочкамі, пасаджаныя асобна для самастойнага росту. *Размнажэнне адводкамі.* **2.** Пчаліны рой, які толькі што ўтварыўся і аддзяліўся ад старога.

**АДВО́ДЗІЦЬ** *гл.* адвесці.

**АДВО́ДНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для адводу чаго-н. убок. *Адводная труба. А. канал.*

**АДВО́З** *гл.* адвезці.

**АДВО́ЗІЦЬ** *гл.* адвезці.

**АДВО́ЗКА** *гл.* адвезці.

**АДВО́ЛЬНЫ** -ая, -ае. **1.** Нічым не абмежаваны, вольны. *Адвольныя рухі.* **2.** Які праводзіцца самавольна. *Адвольнае рашэнне.* **3.** Бяздоказны, непераканаўчы, беспадстаўны. *Адвольнае тлумачэнне.* ‖ *наз.* **адво́льнасць**, -і, *ж.*

**АДВО́РВАЦЬ** *гл.* адараць.

**АДВО́СТРЫВАННЕ** *гл.* адвастрыць.

**АДВО́СТРЫВАЦЬ** *гл.* адвастрыць.

**АДВУЧЫ́ЦЦА**, -вучу́ся, -ву́чышся, -ву́чыцца; *зак.* **1.** *ад чаго* і *з інф.* Адвыкнуць ад чаго-н. *А. курыць.* **2.** Закончыць навучанне або знаходзіцца на вучобе нейкі час (разм.). *А. ў сярэдняй школе. Адвучыўся год на курсах.* ‖ *незак.* **адву́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 знач.).

**АДВУЧЫ́ЦЬ**, -вучу́, -ву́чыш, -ву́чыць; -ву́чаны; *зак.* **1.** *каго (што) ад чаго* і *з інф.* Прымусіць адвыкнуць ад чаго-н. *А. ад курэння. А. дзіця ад грудзей.* **2.** *каго (што)* і *без дап.* Закончыць вучэнне, перастаць вучыць, навучаць (разм.). ‖ *незак.* **адву́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВЫ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -вы́к, -кла; -ні; *зак.* **1.** *ад чаго* і *з інф.* Пазбавіцца ад якой-н. прывычкі. *А. ад курэння.* **2.** *ад каго-чаго.* Перастаўшы бываць дзе-н. ці бачыцца з кім-н., стаць каму-н. далёкім, чужым. *А. ад старых сяброў.* ‖ *незак.* **адвыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **адвыка́нне**, -я, *н.*

**АДВЯДЗЕ́ННЕ** *гл.* адвесці.

**АДВЯЗА́ЦЦА**, -вяжу́ся, -вя́жашся, -вя́жацца; -вяжы́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Развязацца, вызваліцца ад прывязі. *Сабака адвязаўся. Вяроўка адвязалася.* **2.** *перан., ад каго.* Перастаць дакучаць каму-н. (разм.). *Адвяжыся ты ад мяне.* **3.** *перан., ад каго-чаго.* Пазбавіцца ад каго-, чаго-н. непажаданага, непрыемнага або дакучлівага (разм.). *Хацелася хутчэй а. ад такога чалавека.* ‖ *незак.* **адвя́звацца**, -аецца (да 1 знач.).

**АДВЯЗА́ЦЬ**, -вяжу́, -вя́жаш, -вя́жа; -вяжы́; -вя́заны; *зак., каго-што.* Вызваліць ад прывязі, аддзяліць ад чаго-н. (прывязанае, завязанае). *А. каня. А. вяроўку.* ‖ *незак.* **адвя́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВЯРНУ́ЦЦА**, -вярну́ся, -ве́рнешся, -ве́рнецца; -вярні́ся; *зак.* **1.** Павярнуцца ўбок; павярнуць галаву. *А. ад акна.* **2.** *перан., ад каго-чаго.* Парваць сувязі, адносіны з кім-н.; адмовіцца ад чаго-н. *А. ад здрадніка.* ◊ **Бог адвярнуўся** *ад каго* (разм.) — пра бесперапынныя няўдачы. ‖ *незак.* **адваро́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДВЯРНУ́ЦЬ**, -вярну́, -ве́рнеш, -ве́рне; -вярні́; -ве́рнуты; *зак., каго-што.* **1.** Павярнуць у другі бок. *А. галаву ўбок.* **2.** Варочаючы, адняць, адсунуць. *А. камень.* **3.** Паставіць на месца што-н. перавернутае, абернутае. *А. воз. А. ночвы.* **4.** Адагнаць, накіраваць у другі бок (пра жывёлу). *А. карову ад жыта.* **5.** Адагнуць край чаго-н. *А. халявы ботаў.* **6.** *безас.* Аб пачуцці агіды, непрыязнасці да каго-, чаго-н. (разм.). *Адвярнула ад гарэлкі* (безас.). **7.** *перан.* Адцягнуць (увагу, думку і пад.). *Справы адвярнулі ўвагу ад дому.* ◊ **Нос адвярнуць** (разм., неадабр.) — выказаць сваё незадавальненне чым-н. ‖ *незак.* **адваро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДВЯСЛО́ЎВАЦЬ** *гл.* адвеславаць.

**АДВЯЧО́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* Перадвячэрні час. *Быў ранні а.* ‖ *прым.* **адвячо́ркавы**, -ая, -ае. *А. час.*

**АДВЯЧО́РКАМ**, *прысл.* Перад самым вечарам. *Зайсці а. да суседа.*

**АДГАБЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны; *зак., што.* Габлюючы, зрабіць роўным, гладкім. *А. падлогу ў новай хаце.* ‖ *незак.* **адгаблёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДГАВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -во́рышся, -во́рыцца; *зак.* Ухіліцца ад чаго-н., спасылаючыся на якія-н. абставіны; апраўдацца. *Ледзь адгаварыўся ад даручэння.* ‖ *незак.* **адгаво́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДГАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -во́рыш, -во́рыць; -во́раны; *зак., каго (што), ад чаго* і *з інф.* Пераканаць не рабіць чаго-н. *А. ад задуманага плана. Адгаварылі ехаць так далёка.* ‖ *незак.* **адгаво́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДГАВО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Спасылка на што-н. з мэтай ухіліцца, адмовіцца ад чаго-н. *Ён знойдзе адгаворку.*

**АДГАВО́РЫ**, -аў (разм.). Просьбы, угаворы не рабіць чаго-н. *Дарэмныя а.*

**АДГАДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак.* **1.** *што.* Даць адрасці чаму-н. *А. бараду.* **2.** *каго-што.* Выгадаваць, адкарміць. *А. кабана.* ‖ *незак.* **адгадо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адгадо́ўванне**, -я, *н.*

**АДГАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Угадаць, разгадаць; правільна вырашыць; здагадацца, прадбачыць. *А. загадку. А. ход падзей. А. думку сябра.* ‖ *незак.*

**адга́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адга́дванне**, -я, *н. і* **адга́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.*

**АДГАДЗІ́ЦЬ**, -гаджу́, -го́дзіш, -го́дзіць; *зак.* (разм.). Робячы што-н. добрае, аддзякаваць за паслугу. ‖ *незак.* **адго́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДГА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** *гл.* адгадаць. **2.** Адказ на загадку; рашэнне, якое раскрывае якую-н. тайну. *Дык вось дзе а.!*

**АДГА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які ўмее адгадваць, адгадвае што-н. ‖ *ж.* **адга́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**АДГАЛІНАВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* адгалінавацца, адгалінаваць. **2.** Бакавы адростак, галіна. *Таполя дае шмат адгалінаванняў.* **3.** Частка дарогі, ракі і пад., якая адыходзіць убок. *А. арашальнага канала.* **4.** *перан.* З'ява, што ўяўляе сабой частку чаго-н. асноўнага, галоўнага. *Розныя адгалінаванні сектанцтва.*

**АДГАЛІНАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ну́ецца; *зак.* Утварыцца (пра адгалінаванні). *Ад шашы адгалінавалася некалькі дарог.* ‖ *незак.* **адгаліно́ўвацца**, -аецца; *наз.* **адгаліно́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **адгалінава́нне**, -я, *н. і* **адгаліне́нне**, -я, *н.*

**АДГАЛІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што* (спец.). Зрабіць адгалінаванне (у 2 і 3 знач.). *А. парастак. А. дарогу.* ‖ *незак.* **адгаліно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **адгаліно́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **адгалінава́нне**, -я, *н. і* **адгаліне́нне**, -я, *н.*

**АДГАЛІНЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* адгалінавацца, адгалінаваць. **2.** Тое, што і *адгалінаванне* (у 2—4 знач.).

**АДГАЛО́САК**, -ску, *мн.* -скі, -скаў, *м.* **1.** Рэха, водгулле. *Плывуць адгалоскі ад песень.* **2.** *чаго.* Аслаблены адлегласцю гук чаго-н. *Адгалоскі грому.* **3.** *перан., чаго.* Тое, у чым выяўляюцца сляды ўплыву, уздзеяння чаго-н.; што з'яўляецца вынікам чаго-н., адказам на якія-н. з'явы, падзеі. *Паэма з'явілася адгалоскам грамадскіх падзей.*

**АДГАМАНІ́ЦЬ**, -маню́, -мо́ніш, -мо́ніць; *зак.* **1.** Скончыць гамонку, перастаць гаманіць. *Адгаманілі дзядзькі і разышліся.* **2.** *перан.* Прайсці, закончыцца. *Усё прайшло, адгаманіла.*

**АДГАНЯ́ЦЦА** *гл.* адагнацца.

**АДГАНЯ́ЦЬ** *гл.* адагнаць.

**АДГАРАДЗІ́ЦЦА**, -раджу́ся, -ро́дзішся, -ро́дзіцца; *зак.* **1.** Аддзяліцца, паставіўшы якую-н. агароджу. *А. высокім плотам. А. шырмай.* **2.** *перан.* Адасобіцца, парваць сувязь з кім-н. *А. ад усяго свету.* ‖ *незак.* **адгаро́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДГАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны; *зак., каго-што.* **1.** Аддзяліць, паставіўшы якую-н. агароджу, перагародку. *А. участак пашы.* **2.** *перан.* Аддзяліць, адасобіць ад каго-, чаго-н., пазбавіць зносін з кім-, чым-н. *А. ад жыцця.* **3.** *перан.* Абараніць, засцерагчы ад чаго-н. небяспечнага або непрыемнага. *А. ад крытыкі.* ‖ *незак.* **адгаро́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДГАРНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -го́рнецца; *зак.* Павярнуцца з аднаго боку на другі (пра лісты ў кнізе), перагарнуцца. ‖ *незак.* **адго́ртвацца**, -аецца.

**АДГАРНУ́ЦЬ**, -гарну́, -го́рнеш, -го́рне; -гарні́; -го́рнуты; *зак., што.* **1.** Адгрэбці, адсунуць убок. *А. попел.* **2.** Адхіліць, адвесці ўбок, адсунуць. *А. валасы.* **3.** Разгарнуць, адкрыць (кнігу, сшытак і пад.); павярнуць з аднаго боку на другі, перагарнуць (старонку, ліст і пад.). *А. лісток календара.* ‖ *незак.* **адго́ртваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДГАРО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Тое, што і *перагародка. Дашчаная а.*

**АДГАРТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* Гартаючы, перакінуць некалькі лістоў (кнігі, сшытка і пад.). *А. шэсць старонак.* ‖ *незак.* **адго́ртваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДГАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які адгарэў, адпаў, адваліўся. *А. сучок.*

**АДГАРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́ць; *зак.* **1.** Кончыць гарэць. **2.** Перагарэўшы, адваліцца, адпасці. *Сук адгарэў.* **3.** *перан.* Скончыцца, мінуцца. *Усё адышло, адгарэла.* ‖ *незак.* **адга́рваць**, -ае *і* **адгара́ць**, -а́е.

**АДГАСЦІ́ЦЬ**, -гашчу́, -го́сціш, -го́сціць; *зак.* **1.** Правесці ў гасцях некаторы час, гасціць. *Цэлы месяц адгасціў у сяброў.* **2.** Скончыць гасціць.

**АДГАСЦЯВА́ЦЬ**, -цю́ю, -цю́еш, -цю́е; -цю́й; *зак.* (разм.). Тое, што і *адгасціць.*

**АДГІНА́ННЕ** *гл.* адагнуць.

**АДГІНА́ЦЦА** *гл.* адагнуцца.

**АДГІНА́ЦЬ** *гл.* адагнуць.

**АДГЛЫНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., што* і *чаго* (разм.). Адпіць, крыху глынуўшы. *А. вады.*

**АДГЛЯНЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак., што.* Навесці глянец, бляск на што-н. *А. паркет.*

**АДГНІ́СЦІ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -гніе́; -гніў, -гніла́, -ло́; *зак.* Тое, што і *адгніць.*

**АДГНІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -гніе́; -гніў, -гніла́, -ло́; *зак.* Згніўшы, адваліцца, адпасці. *Сукі на дрэве адгнілі.* ‖ *незак.* **адгніва́ць**, -а́е.

**АДГО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* (разм.). Аддзяка, адплата дагаджэннем за дагаджэнне каму-н. *Быць у адгодзе.*

**АДГО́Н**, -у, *м.* **1.** *гл.* адагнаць. **2.** Малако, з якога сепаратарам адагнана, аддзелена смятана. *Наліць парасятам адгону.* **3.** Прадукт адгонкі парай. *Спіртавы а.* **4.** Пра жывёлу: знаходжанне на пашы, не ў памяшканнях (спец.). *Авечкі на адгоне.* ‖ *прым.* **адго́нны**, -ая, -ае (да 3 знач.). *Адгонная жывёлагадоўля.*

**АДГО́НКА** *гл.* адагнаць.

**АДГО́Р'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Адгалінаванне асноўнага горнага ланцуга. *Адгор'і Карпат.*

**АДГО́РТВАЦЦА** *гл.* адгарнуцца.

**АДГО́РТВАЦЬ** *гл.* адгарнуць, адгартаць.

**АДГРАБА́ЦЬ** *гл.* адгрэбці.

**АДГРУЗІ́ЦЬ**, -ружу́, -ру́зіш, -ру́зіць; -ру́жаны; *зак., што.* Пагрузіўшы, падрыхтаваць да адпраўкі або адправіць. *А. станкі для завода. А. вугаль.* ‖ *незак.* **адгружа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **адгру́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* ‖ *прым.* **адгру́зачны**, -ая, -ае.

**АДГРУ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* (разм.). **1.** Перастаць грукаць. **2.** *перан., што.* Пабудаваць, зрабіць, арганізаваць што-н. вялікае, дарагое і пад. *А. сабе дом.* **3.** *перан., што.* Працуючы, выконваючы абавязак, адбыць, адслужыць нейкі час. *Два гады на чыгунцы адгрукалі.* **4.** *што.* Адскакаць, станцаваць. *А. польку на танцах.*

**АДГРЫ́ЗЦІ**, -зу́, -зе́ш, -зе́; -зём, -зяце́, -зу́ць; -зі́; -зены; *зак., што.* Грызучы, адкусіць, ад'есці. ‖ *незак.* **адгрыза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДГРЫМЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -міць; *зак.* **1.** Перастаць грымець. *Адгрымеў гром.* **2.** *перан.* Прайсці, закончыцца. *Адгрымелі баі. Адгрымела яго слава.*

**АДГРЭ́БЦІ**, -рабу́, -рабе́ш, -рабе́; -рабём, -рабяце́, -рабу́ць; -ро́б, -рэ́бла; -рабі́; -рэ́бены; *зак., што.* Грабучы, адсунуць убок, адкінуць. *А. сена. А. смецце.* ‖ *незак.* **адграба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДГУКНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Адказаць на покліч; адазвацца; падаць голас. *Дзе ты, адгукніся*! **2.** *перан.* Адазвацца нейкім чынам на якую-н. падзею, з'яву, выказаць свае адносіны да яе. *А. рашучым выступленнем у друку.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Выклікаць якое-н. пачуццё, адчуванне ў каго-н. *Хай жа песня ў сэрцах адгукнецца.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Адбіцца на кім-, чым-н., зрабіць уплыў. *Памылка гэта адгукнецца ў вашым жыцці.* ‖ *незак.* **адгука́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **адгу́кваца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДГУ́Л**, -у, *м.* **1.** *гл.* адгуляць. **2.** *мн.* -ы, -аў. Час адпачынку за звышурочную працу. *Узяць а.*

**АДГУЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** Скончыць гуляць; правесці нейкі час не працуючы (разм.). *А. водпуск.* **2.** *што.* Пабыць у адгуле за звышурочную працу ў выхадны. **3.** *што.* Згуляць, адсвяткаваць (разм.); правесці некаторы час на гуляннях. *А. вяселле.* ‖ *незак.* **адгу́льваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.). ‖ *наз.* **адгу́л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (да 2 знач.). *Заўтра ў мяне а.*

**АДГУЧА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чыць; *зак.* Перастаць гучаць. *Адгучалі песні птушак.*

**АДГЭ́ТУЛЬ**, *прысл.* З гэтага месца, ад гэтага месца, адсюль, з гэтай мясцовасці. *А. родам. Выехаць а.*

**АДДАВА́ЦЦА** *гл.* аддацца.

**АДДАВА́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -дае́; *незак.* **1.** *чым* (разм.). Мець які-н. прысмак, пах і пад. *Бочка аддае рыбай.* **2.** *перан.* Нагадваць што-н., мець адценне, рысы

чаго-н. *У канцы жніўня ночы аддавалі ўжо восенню. Думка аддае даўнінай.*

**АДДАВА́ЦЬ**² *гл.* аддаць.

**АДДАЙЦЬ**, -даю, -до́іш, -до́іць; -до́ены; *зак., каго* і *чаго* і *без дап.* **1.** Скончыць даіць. *А. кароў.* **2.** Выдаіць крыху. *А. малака.* ‖ *незак.* **аддо́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДДАЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* аддаліць. **2.** Даль, далёкая адлегласць; месца, якое знаходзіцца на значнай адлегласці ад чаго-н. *Дуб стаяў у аддаленні.*

**АДДА́ЛЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца ці адбываецца далёка; які даносіцца здалёк. *Аддаленыя вёскі. А. шум.* **2.** Аддзелены вялікім прамежкам часу. *Аддаленая эпоха.* **3.** *перан.* Мала падобны; які не мае непасрэднай сувязі з чым-н. *А. гібрыд. Аддаленае падабенства.* ‖ *наз.* **адда́ленасць**, -і, *ж.*

**АДДАЛІ́ЦЬ**, -далю́, -далі́ш, -далі́ць; -далі́м, -даліце́, -даля́ць; -да́лены; *зак., каго-што.* **1.** Зрабіць больш далёкім (у прасторы, часе і пад.). *А. прадмет ад фотаапарата. А. сустрэчу.* **2.** Выклікаць адчужанасць, стаць прычынай адчужанасці. *Гэтае здарэнне канчаткова аддаліла іх.* ‖ *незак.* **аддаля́ць**, -яю, -яеш, -яе. ‖ *звар.* **аддалі́цца**, -лю́ся, -лі́шся, -лі́цца; -лі́мся, -ліце́ся, -ля́цца; *незак.* **аддаля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **аддале́нне**, -я, *н.*

**АДДА́НЫ**, -ая, -ае. Прасякнуты любоўю і вернасцю да каго-, чаго-н. *А. змагар. Адданыя справе людзі. Аддана* (прысл.) *працаваць.* ‖ *наз.* **адда́насць**, -і, *ж.*

**АДДАРЫ́ЦЬ**, -дару́, -до́рыш, -до́рыць; -до́раны; *зак., каму* (разм.). **1.** Зрабіць каму-н. падарунак у адказ на атрыманы. **2.** *перан.* Аддзякаваць, адплаціць чым-н. за ласку, паслугу. ‖ *незак.* **аддо́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДДА́ЦЦА**, -да́мся, -дасі́ся, -да́сца; -дадзі́мся, -дасце́ся, -даду́цца; *зак.* **1.** *каму-чаму* і *на што.* Аддаць сябе ва ўладу пераможцы, здацца; пакарыцца не супраціўляючыся. *А. на чужую волю.* **2.** *каму-чаму.* Цалкам прысвяціць сябе каму-, чаму-н.; захапіцца чым-н, паглыбіцца ў што-н. (думкі, мары). *А. навукцы.* **3.** *каму.* Уступіць у палавую сувязь з кім-н. **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Адгукнуцца, адазвацца, адбіцца; выклікаць сабою якое-н. пачуццё. *У гарах аддалося рэха. Боль аддаўся ў паясніцы.* **5.** *безас.* Будзе аддадзена, заплачана. *Некалі аддасца.* ‖ *незак.* **аддава́цца**, -даюся, -дае́шся, -дае́цца; -даёмся, -даяце́ся, -даю́цца.

**АДДА́ЦЬ**, -да́м, -дасі́, -да́сць; -дадзі́м, -дасце́, -даду́ць; *зак., каго-што.* **1.** Вярнуць назад узятае ў каго-н. *А. доўг. Што вінен, аддаць павінен* (прыказка). **2.** Вылучыўшы святло, цяпло, вільгаць і пад., уздзейнічаць на што-н. *Сонца шчодра аддае цяпло.* **3.** Даць, перадаць што-н. каму-н. *Салдат аддаў дзяўчынцы свой шынель, а сам узяў малога на рукі.* **4.** Перадаць што-н. каму-н. ва ўласнасць або на карыстанне. *А. хату.* **5.** *перан.* Перадаць што-н., падзяліцца чым-н. *А. вопыт і веды.* **6.** *перан.* Ахвяраваць кім-, чым-н. дзеля каго-, чаго-н. *А. сілы, здароўе. Героі аддалі сваё жыццё за шчасце, свабоду і незалежнасць Радзімы.* **7.** Не ўтрымаць, уступіць што-н. непрыяцелю ў барацьбе. **8.** Патраціць час, працу, намаганні на што-н. **9.** Здаць што-н. куды-н. для якой-н. мэты. *А. бялізну ў пральню.* **10.** Накіраваць на службу, вучобу. *А. у салдаты. А. у гімназію.* **11.** Выдаць замуж. *А. дачку за сына спевака.* **12.** Прадаць (па якой-н. цане). *Танна а.* **13.** Заплаціць за купленае. *Дваццаць тысяч рублёў аддала.* **14.** З некаторымі назоўнікамі ўтварае спалучэнне са знач. дзеяння ў залежнасці ад сэнсу назоўніка. *А. загад. А. перавагу.* **15.** *без дап.* Зрабіць рэзкі, кароткі рух назад пры выстрале (пра зброю). *Вінтоўка аддала прыкладам у плячо.* **16.** Прымусіць адступіць назад (пра каня); ад'ехаць заднім ходам на невялікую адлегласць, каб уступіць месца, не перашкаджаць каму-, чаму-н. **17.** *безас.* Адазвацца болем у якой-н. частцы цела. *Аддало ў спіну.* **18.** *спец.* Адвязаць, паслабіць якар і пад. ◊ **Аддаць (богу) душу** (разм.) — памерці. **Аддаць голас** — прагаласаваць за каго-н. на выбарах. **Аддаць даніну** — выказаць павагу, выканаць доўг пашаны, прызнаць. **Аддаць жыццё** *за каго-, што-н.* — памерці, абараняючы каго-, што-н. ‖ *незак.* **аддава́ць**, -даю, -дае́ш, -дае́ (да 2 знач.).

**АДДА́ЧА**, -ы, *ж.* **1.** *гл.* аддаць. **2.** Тое, што і каэфіцыент карыснага дзеяння (спец.). **3.** *перан.* Карысны вынік работы. *Працаваць з поўнай аддачай.*

**АДДЗЕ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Падраздзяленне ў структуры якой-н. установы, прадпрыемства або ўстанова, якая ўваходзіць у склад якой-н. арганізацыі. *А. кадраў. Галантарэйны а. магазіна.* **2.** Састаўная частка чаго-н., дзе знаходзяцца аднародныя прадметы; тэматычна аб'яднаная частка кнігі, газеты. *А. беларускага жывапісу. А. хронікі ў газеце.* **3.** Адна з частак, на якія падзяляецца што-н. цэлае на аснове пэўных прыкмет. *Аддзелы галаўнога мозга.*

**АДДЗЕ́ЛАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па аддзелачных работах. ‖ *ж.* **аддзе́лачніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**АДДЗЕ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* **1.** Наданне якога-н. пэўнага выгляду (шляхам рамонту, апрацоўкі, аздаблення і пад.). *А. кватэры.* **2.** Тое, што служыць упрыгожаннем, аздобай чаго-н. *Карункавая а.* ‖ *прым.* **аддзе́лачны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Аддзелачныя работы.*

**АДДЗЕ́РЦІ**, -дзяру́, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзяро́м, -дзераце́, -дзяру́ць; -дзяры́; -дзёрты; *зак., што.* Тое, што і *ададраць.* ‖ *незак.* **аддзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДДЗЕЯСЛО́ЎНЫ**, -ая, -ае. У граматыцы: утвораны ад дзеяслова. *А. назоўнік.*

**АДДЗІМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што.* **1.** Дзьмучы, подыхам адносіць, адганяць назад ці ўбок. *А. пару ад сподачка.* **2.** Раз-пораз выдыхаць ротам паветра ў часе сну або ў стане фізічных перагрузак.

**АДДЗІРА́ЦЦА** *гл.* ададрацца.

**АДДЗІРА́ЦЬ** *гл.* ададраць.

**АДДЗЯЖУ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак.* **1.** Закончыць дзяжурства. **2.** *што.* Правесці на дзяжурстве некаторы час. *А. ноч.* **3.** *перан.* Прабыць некаторы час на цяжкай нецікавай працы, службе. *А. па размеркаванні ў райцэнтры.* ‖ *незак.* **аддзяжу́рваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.).

**АДДЗЯ́КА**, -і, *ДМ* -дзя́цы, *ж.* Адплата за дабро, за паслугу. *У аддзяку падарыць сябру кнігу.*

**АДДЗЯ́КАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; *зак., каму.* Выказаць удзячнасць, падзякаваць за паслугу, адплаціць. *А. за дапамогу.*

**АДДЗЯЛЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* аддзяліцца, аддзяліць. **2.** Тое, што і *аддзел* (у 1 знач.). *А. банка. А. міліцыі.* **3.** Асобная самастойная ўстанова, арганізацыя і пад. ў сістэме чаго-н. *Паштовае а. сувязі.* **4.** Самастойная частка канцэрта, тэатральнага паказу. *Другое а. канцэрта.* **5.** Ніжэйшае вайсковае падраздзяленне, што ўваходзіць у склад узвода. *Камандзір аддзялення.* **6.** Асобная, адгароджаная частка памяшкання. *Першае а. склада.* **7.** Адна з частак, на якія падзелена што-н., прызначанае для захоўвання розных рэчаў, прадметаў. *Партфель мае два аддзяленні.* ‖ *прым.* **аддзяле́нчы**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.) *і* **аддзялённы**, -ая, -ае (да 5 знач.). *Аддзяленчыя штаты. Аддзялённы камандзір. Загад аддзялённага* (наз.).

**АДДЗЯЛІ́ЦЦА**, -дзялю́ся, -дзе́лішся, -дзе́ліцца; *зак.* **1.** Вылучыцца з агульнай адзінай масы. *А. ад натоўпу.* **2.** Адстаць, адарвацца і пад. ад цэлага, выдзеліцца. *Тры самалёты аддзяліліся ад групы і накіраваліся да станцыі.* **3.** Стаць самастойным гаспадаром пасля падзелу маёмасці; адасобіцца. *Сын аддзяліўся ад бацькоў.* ‖ *незак.* **аддзяля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **аддзяле́нне**, -я, *н.*

**АДДЗЯЛІ́ЦЬ**, -дзялю́, -дзе́ліш, -дзе́ліць; -дзе́лены; *зак.* **1.** *што.* Вылучыць з агульнай адзінай масы што-н. або адасобіць тое, што знаходзіцца ў злучэнні з ім. *А. бялок ад жаўтка. А. старыя кнігі ад новых. А. тлушч ад малака.* **2.** Адасобіць, раз'яднаць, адмежаваць. *А. царкву ад дзяржавы.* **3.** Вылучыць, распазнаць. *А. істотнае ад выпадковага.* **4.** *каго-што.* Выдзеліць каму-н. частку, долю з агульнай гаспадаркі, адасобіць, даць магчымасць весці самастойную гаспадарку. *А. сыноў.* ‖ *незак.* **аддзяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **аддзяле́нне**, -я, *н.*

**АДДЗЯЛЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які служыць для аддзялення чаго-н. ад другога. *А. шчыт.*

**АДДЗЯЎБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Тое, што і *аддзяўбці.* ‖ *незак.* **аддзёўбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДДЗЯЎБЦІ́**, -дзяўбу́, -дзяўбе́ш, -дзяўбе́; -дзяўбём, -дзеўбяце́, -дзяўбу́ць; -дзёўб, -дзяўбла́, -ло́; -дзяўбі́; -дзяўба́ны; *зак., што.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Дзеўбучы, аддзяліць дзюбай (пра птушак). **2.** Аддзяліць дзяўбаннем. *А. кавалак лёду.* ‖ *незак.* **аддзёўбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДДЗЯ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак., каму.* Тое, што і *аддзякаваць. А. за паслугу.*

**АДДО́ЙВАЦЦА** *гл.* аддаіцца.

**АДДО́ЙВАЦЬ** *гл.* аддаіць.

**АДДО́РВАЦЬ** *гл.* аддарыць.

**АДДРУКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* Тое, што і *надрукаваць. А. тыраж кнігі.* ‖ *незак.* **аддрукоўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДДУБА́СІЦЬ** *гл.* дубасіць.

**АДДУ́ХА**, -і, *ДМ* -ду́се, *ж.* (разм.). **1.** Кароткі перапынак для адпачынку. *Працавалі без аддухі.* **2.** Тое, што і *аддушына* (у 2 знач.).

**АДДУ́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *аддушына* (у 1 знач.).

**АДДУ́ШЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -шын, *ж.* **1.** Адтуліна для выхаду паветра, дыму і пад. *А. ў печы.* **2.** *перан.* Тое, што дае выхад чаму-н. (пачуццям, настрою і пад.). *Знайсці аддушыну ў гутарках з блізкім чалавекам.*

**АДДЫ́МНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна зняць, адняць, аддзяліць. *Аддымныя дзверцы.*

**АДДЫ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Перавесці дух, пачаць зноў роўна дыхаць. *А. пасля бегу.* ‖ *незак.* **аддыхвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДДЫ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* (разм.). Кароткі перапынак для адпачынку. *Бегчы без аддышкі.*

**АД'Е́ЗД**, -у, *М* -дзе, *м.* Адпраўленне ў дарогу. *У дзень ад'езду. А. дэлегацыі.*

**АД'Е́ЗДЗІЦЦА**, -ézджуся, -ézдзішся, -ézдзіцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *ад'ездзіць* (у 2 знач.). *Мы ўжо ад'ездзіліся, няхай цяпер другія ездзяць.*

**АД'Е́ЗДЗІЦЬ**, -ézджу, -ézдзіш, -ézдзіць; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Праездзіць некаторы час. *Машына ад'ездзіла дваццаць гадоў.* **2.** Перастаць ездзіць куды-н. *Я сваё ад'ездзіў.*

**АД'Е́СЦІ**, ад'е́м, ад'ясі́, ад'е́сць; ад'ядзі́м, ад'ясце́, ад'яду́ць; ад'е́ш; ад'е́дзены; *зак.* **1.** Адкусіць, адгрызці; з'есці частку чаго-н. *Кот ад'еў галаву рыбіны.* **2.** Скончыць есці (разм.). ‖ *незак.* **ад'яда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 знач.).

**АД'Е́СЦІСЯ**, ад'е́мся, ад'ясі́ся, ад'е́сца; ад'ядзі́мся, ад'ясце́ся, ад'яду́цца; ад'е́шся; *зак.* (разм.). **1.** Паправіцца, пасыцець ад добрай яды; адкарміцца. *Кабан ад'еўся.* **2.** Наесціся чаго-н. удосталь. *Ад'еліся за лета яблыкаў і груш.* ‖ *незак.* **ад'яда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АД'Е́ХАЦЦА**, -е́дуся, -е́дзешся, -е́дзецца; -е́дзься; *зак.* (разм.). Тое, што і *ад'ехаць* (у 1 знач.). ‖ *незак.* **ад'язджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АД'Е́ХАЦЬ**, -е́ду, -е́дзеш, -е́дзе; -е́дзь; *зак.* **1.** Паехаўшы, аддаліцца на нейкую адлегласць. *А. ад сяла кіламетраў пяць.* **2.** Паехаць куды-н., пакінуць дом (горад, вёску і пад.). *А. на поўнач.* **3.** Зрушыцца з месца, адсунуцца, перастаць шчыльна прылягаць (разм.). *Засаўка ад'ехала.* ‖ *незак.* **ад'язджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДЖАРТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *зак.* **1.** Адказаць на сур'ёзнае пытанне, патрабаванне жартам. **2.** Перастаць жартаваць (разм.). ‖ *незак.* **аджартоўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДЖА́РЦЫ**, -аў, *адз.* -рац, -рца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Аджарыі. ‖ *ж.* **аджа́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **аджа́рскі**, -ая, -ае.

**АДЖА́ЦЦА**, адажну́ся, адажне́шся, адажне́цца; адажнёмся, адажняце́ся, адажну́цца; адажні́ся; *зак.* Скончыць жніво. ‖ *незак.* **аджына́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АДЖА́ЦЬ**, адажну́, адажне́ш, адажне́; адажнём, адажняце́, адажну́ць; адажні́; аджа́ты; *зак., што.* **1.** Зжаць жыта, пшаніцу і пад. на невялікай частцы поля ад краю. *А. жыта ад дарогі.* **2.** Адпрацаваць на жніве ўзамен за што-н. *А. за дапамогу ў касьбе.* ‖ *незак.* **аджына́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДЖЛУ́КЦІЦЬ**, -кчу, -кціш, -кціць; -кчаны; *зак., што* і *чаго* (разм.). **1.** Апрацаваць, адмыць жлукчаннем. *А. бялізну.* **2.** Прагна адпіць чаго-н. *А. малака.* ‖ *незак.* **аджлукчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЖЫВІ́ЦЬ**, -жыўлю́, -жы́віш, -жы́віць; -жыўлены; *зак., каго-што.* Тое, што і *ажывіць* (у 1 знач.). ‖ *незак.* **аджыўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **аджыўле́нне**, -я, *н.*

**АДЖЫ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які аджыў, не адпавядае сучаснасці. *Крытыкаваць старое, аджылае* (наз.).

**АДЖЫ́ЦЬ**, -жыву́, -жыве́ш, -жыве́; -жывём, -жывяце́, -жыву́ць; -жыў, -жыла́, -ло́; -жы́ты; *зак.* **1.** Пражыць, скончыць жыць. *А. свой век.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Устарэць. *Аджылі розныя звычаі і забабоны.* **3.** Вярнуцца да жыцця, стаць зноў жывым, ажыць. *Прайшоў дождж, і аджыла ніва.* ‖ *незак.* **аджыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДЗАЛІ́ЦЬ**, -залю́, -зо́ліш, -зо́ліць; -залёны; *зак., што* (спец.). Апрацаваць заленнем. *А. шкуру.* ‖ *наз.* **адзо́л**, -у, *м.* ‖ *прым.* **адзо́льны**, -ая, -ае. *А. чан.*

**АДЗВАНІ́ЦЬ**, -званю́, -зво́ніш, -зво́ніць; *зак.* **1.** Скончыць званіць. *Адзванілі званы.* **2.** Адзначыць што-н. звонам; празваніць. *Гадзіннік адзваніў дванаццаць.* ‖ *незак.* **адзво́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЗЕ́ЖА**, -ы, *ж.* Тое, што і *адзенне* (у 1 знач.; разм.). Набыць зімовую адзежу. ‖ *памянш.* **адзе́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* *Каб не ежка ды не адзежка, была б грошай дзежка* (прыказка).

**АДЗЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да адзежы, прызначаны для яе. *Адзежная шчотка.*

**АДЗЕ́ЖЫНА**, -ы, *ж.* (разм.). Адзін з прадметаў адзення. *Купіць якую адзежыну.*

**АДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* Вырабы з тканіны, футра і пад., якія надзяваюць і носяць на сабе. *Зімовае а. Магазін жаночага адзення.*

**АДЗЕРАВЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаў цвёрдым, як дрэва, неадчувальным. *Адзеравянелыя ад холаду рукі.* **2.** *перан.* Анямелы, здранцвелы, нерухомы, застылы. *А. твар.* **3.** *перан.* Безуважны, абыякавы. ‖ *наз.* **адзеравяне́ласць**, -і, *ж.*

**АДЗЕ́ЦЬ**, адзе́ну, адзе́неш, адзе́не; адзе́нь; адзе́ты; *зак., каго-што* **1.** Надзець на каго-н. вопратку, апрануць. *А. дзіця. Зіма адзела поле снегам* (перан.). **2.** Апрануць кім-н. *А. Дзедам Марозам.* **3.** Забяспечыць каго-н. адзеннем. *Бацькі дзяцей адзелі і абулі.* **4.** Тое, што і *надзець; нацягнуць. Ледзь адзеў пальчаткі.* **5.** *перан.* Пакрыць; ахінуць. *Дубы зялёны плашч адзелі.* ‖ *незак.* **адзява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **адзе́цца**, адзе́нуся, адзе́нешся, адзе́нецца; адзе́нься; *незак.* **адзява́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **адзява́нне**, -я, *н.* (паводле 1 і 4 знач.).

**АДЗЁР**, адру́, *м.* Заразная хвароба, якая суправаджаецца высыпкай на целе, запаленнем дыхальных шляхоў і гарачкай. ‖ *прым.* **адзёрны**, -ая, -ае.

**АДЗІ́Н**, аднаго́, *м.;* адна́, адно́й (адна́е), *ж.;* адно́, аднаго́, *н.;* адны́, -ы́х; *ліч. кольк.* **1.** Лік. *А. плюс два.* **2.** Колькасць, якая абазначаецца лічбай 1. *А. метр. Адна кніга. Сем раз адмерай, адзін — адрэж* (прыказка). **3.** *у знач. наз.* **адзі́н**, аднаго́, *м.;* **адна́**, адно́й (адна́е), *ж.* Пра чалавека. *Сямёра аднаго не чакаюць* (прыказка). **4.** *у знач. прым.* Без іншых, асобна ад іншых, у адзіноце. *А. расце дуб на далёкім полі.* **5.** Пусты, пакінуты, адзінокі. *Хата праз колькі дзён застанецца адна без гаспадароў.* **6.** Тое, што ёсць, без наяўнасці чаго-н. другога. *Аб адной вадзе сыт не будзеш* (прыказка). **7.** *у знач. прым.* Ніхто іншы або нішто іншае, акрамя названага тут; у спалучэнні з выдзяляльна-абмежавальнай часц. «толькі»; ужыв. для выдзялення і ўзмацнення значэння таго слова, да якога адносіцца. *Адно толькі стажарышча чарнелася засохлымі галінамі. Не спадабаўся балет адной ёй. Ты ў нас адна, адна такая ў свеце.* **8.** *у знач. наз.* **адно́**, аднаго́, *н. Пра яго мы ведаем адно: ён быў студэнтам.* **9.** *у знач. прым.* Той самы, тоесны; аднолькавы; у спалучэнні са словамі «і той», «і тая», «і тое», «і тыя»; *у знач. наз.* **адно́**, аднаго́, *н. Стаяць на адным месцы. А. і той чалавек. Адна і тая песня. Адно і тое пытанне. Адны і тыя падзеі. Гаворыць адно і тое.* **10.** *у знач. прым.* Суцэльны, непадзельны, адзіны; *у знач. наз.* **адно́**, аднаго́, *н. Галіны пераблытаны ў а. шалаш. Што азначае сіла ўсяго народа, з'яднаная ў адно?* **11.** *у знач. займ.* З прыназоўнікам «з» ужыв. для выдзялення асобы, прадмета, з'явы і пад. або некалькіх асоб, прадметаў з якой-н. катэгорыі, асяроддзя, раду. *А. з прысутных параіў не спяшацца. Здраднік — а. з шаснаццаці.* **12.** *у знач. прым.* У спа-

лучэнні з «другі» ўжыв. пры пералічэнні, проціпастаўленні шэрагу прадметаў, з'яў, асоб; *у знач. наз.* **адзін**, аднагó, *м;* **адна́**, аднóй (аднаé), *ж.;* **адно́**, аднагó, *н.; у знач. ліч. парадк.* Першы з пералічаных прадметаў, з'яў, асоб і пад. *Праходзіць момант, а. і другі, праходзяць хвіліны. А. чалавек — высокі, другі — зусім нізкі. Гаварыць адно, а думаць другое. Адно другому не замінае. Адзін пень гарэў, а другі спіну грэў* (прыказка). **13.** *у знач. прым.* У спалучэнні з «другі» ўжыв. пры супастаўленні якіх-н. якасцей, уласцівасцей, дзеянняў і пад., якія, мяняючыся, робяць прадмет, асобу, з'яву і пад. іншымі. *Адна справа — паэзія, другая — проза.* **14.** *у знач. неазнач. займ.* Якісьці, нейкі. *А. багаты пан вельмі любіў слухаць казкі.* ◊ **Адзін другога варты** (разм., неадабр.) — пра людзей, якія аднолькава маюць адмоўныя якасці. **Адзін за адным; адзін за другім** — услед, паслядоўна, па чарзе. **Адзін канец** (разм.) — усё роўна, няхай будзе так. **Адзін на адзін** — без сведак. **Адзін пад адзін (адна пад адну, адно пад адно)** (разм., адабр.) — усе роўныя па росце, па сіле. **Адзін перад адным (адна перад адной, адно перад адным)** — не адстаючы, спаборнічаючы. **Адзін у адзін (адна ў адну, адно ў адно)** (разм., адабр.) — адборныя, адной велічыні, якасці. **Адна нага тут, другая там** (разм.) — вельмі хутка (збегаць і пад.). **Ні адзін** — ніхто з усіх. **Усе да аднаго** (разм.) — усе без выключэння. **Усе як адзін** (разм.) — пагалоўна ўсе. ‖ *парадк.* **пе́ршы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**АДЗІНА**, *прысл.* да адзіны (у знач. ўзмацняльна-абмежавальнага слова: «толькі», «адно», «выключна»). *А. магчымы спосаб. А. правільны шлях.*

**АДЗІНА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае толькі адно, звязаны толькі з чым-н. адным, напр.: *адзінабожжа, адзінаверства, адзінаспадчыннасць, адзінашлюбнасць;* 2) які робіцца, ажыццяўляецца толькі адным, адзіным або адзін на адзін, напр.: *адзінаначалле, адзінаўладдзе.*

**АДЗІНАБО́ЖЖА**, -а, *н.* Рэлігія, якая прызнае стваральнікам свету толькі аднаго Бога; монатэізм; *проціл.* мнагабожжа.

**АДЗІНАБО́РНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Удзельнічаць у адзінаборстве.

**АДЗІНАБО́РСТВА**, -а, *н.* Барацьба, бой адзін на адзін. *Уступіць у а. са стыхіяй.*

**АДЗІНАКРО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які паходзіць ад аднаго бацькі, але розных маці (пра дзяцей). *Адзінакроўныя браты.* **2.** Які звязаны агульнасцю паходжання (пра аднапляменныя супольнасці, братэрскія народы і пад.). *Адзінакроўныя народы.* ‖ *наз.* **адзінакро́ўе**, -я, *н.*

**АДЗІНАНАЧА́ЛЛЕ**, -я, *н.* Аднаасобнае кіраўніцтва. *Прынцып адзінаначалля.*

**АДЗІНАНАЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая кіруецца прынцыпам адзінаначалля або мае правы адзінаначалля.

**АДЗІНА́РНЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з адной часткі, не падвойны. *Адзінарная рама.*

**АДЗІНАЎЛА́ДДЗЕ**, -я, *н.* Сканцэнтраванне ўлады ў руках адной асобы; паўната, неабмежаванасць чыёй-н. улады. ‖ *прым.* **адзінаўла́дны**, -ая, -ае. *А. валадар.*

**АДЗІНА́ЦЦАЦЬ**, -і, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 11. *А. рублёў.* ‖ *парадк.* **адзіна́ццаты**, -ая, -ае. *А. дзень.*

**АДЗІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** У матэматыцы: першы, найменшы цэлы лік у дзясятку, а таксама яго лічбавы знак «1». **2.** толькі *мн.* **(адзі́нкі**, -нак). Апошняя лічба ў мнагазначных ліках. *Двухзначны лік складаецца з адзінак і дзясяткаў.* **3.** Велічыня, якой вымяраюцца іншыя аднародныя велічыні. *Грашовая а. А. сілы току.* **4.** Асобная самастойная частка ў складзе цэлага, асобны прадмет ці асоба ў групе падобных. *Гаспадарчая а. Штатная а.* **5.** *мн.* Асобныя прадметы ці людзі, істоты, нямногія па ліку; мала хто. *Такіх людзей адзінкі* (вельмі мала). ○ **Адзінка захавання** (спец.) — экспанат музея, экзэмпляр кнігі ў бібліятэцы. *У музеі тысячы адзінак захавання.*

**АДЗІ́НКАВЫ**, -ая, -ае. Асобы, рэдкі, нехарактэрны. *А. выпадак.* ‖ *наз.* **адзі́нкавасць**, -і, *ж.*

**АДЗІНО́КІ**, -ая, -ае. **1.** Аддзелены ад іншых падобных; без іншых, да сябе падобных. *А. дуб.* **2.** Які не мае сям'і, блізкіх; які адчувае сябе чужым сярод людзей, далёкім ад іх. *А. чалавек.* **3.** Які праходзіць, адбываецца ва ўмовах адзіноты. *Адзінокая старасць.* ‖ *наз.* **адзіно́касць**, -і, *ж.*

**АДЗІНО́ТА**, -ы, *ДМ* -нóце, *ж.* **1.** Адасобленасць у выніку страты родных, блізкіх або ў выніку жадання пабыць асобна ад іншых. *Жыць на адзіноце.* **2.** Бязлюднасць, сіратлівасць. *Адзінотай веяла з палёў.* **3.** Стан адзінокага чалавека; адзіноцтва. *Пачуццё адзіноты.*

**АДЗІНО́ЦТВА**, -а, *н.* Тое, што і *адзінота. Застацца ў адзіноцтве.*

**АДЗІНО́ЧКА**, -і, *мн.* -і, -чак. **1.** Той, хто адзін, без сям'і, не ў пары. *Адзіночкі харчаваліся ў сталовай.* **2.** *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -чцы, *Т* -ай (-аю), *ж.* Чалавек, які займаецца чым-н. адзін, працуе адзін, без удзелу, без дапамогі іншых. *Саматужнік-а.* **3.** *ж.* Камера на аднаго зняволенага. *Пасадзіць у адзіночку.* **4.** *ж.* Гоначная лодка з адным весляром. *Байдарка-а.* ○ **Маці-адзіночка** — жанчына, якая самастойна выхоўвае пазашлюбнае дзіця.

**АДЗІНОЧНАЛІ́КАВЫ**, -ая, -ае. У выразе: **адзіночналікавы назоўнік** — які ўжыв. толькі ў форме адзіночнага ліку, напр.: *хаўрус, туга, сорам, серабро.*

**АДЗІНО́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які дзейнічае без дапамогі іншых або выконваецца, ажыццяўляецца сіламі аднаго, без удзелу, без дапамогі іншых. *А. палёт.* **2.** Прызначаны для аднаго, разлічаны на аднаго, для знаходжання ў ізаляцыі ад іншых. *Адзіночная камера.* **3.** Асобны, адзінкавы, выпадковы. *А. выстрал.* ○ **Адзіночны лік** — граматычная катэгорыя, якая паказвае, што прадмет прадстаўлены ў колькасці, роўнай аднаму.

**АДЗІ́НСТВА**, -а, *н.* **1.** Агульнасць, поўнае падабенства. *А. думкі. А. поглядаў.* **2.** Цэльнасць, згуртаванасць, непадзельнасць. *А. народа.* **3.** Непарыўнасць, узаемная сувязь. *А. тэорыі і практыкі. А. формы і зместу.*

**АДЗІ́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Толькі адзін. *А. сын. Адзіная радасць.* **2.** Цэлы, непадзельны, з'яднаны. *Адзінае цэлае. А. парыў. А. фронт.* **3.** Агульны для ўсіх, аднолькавы. *А. лёс.*

**АДЗІЧЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаў дзікім, здзічэў. *А. кот. А. сад.* **2.** *перан.* Які выражае дзікасць. *А. выгляд. А. позірк.* ‖ *наз.* **адзічэ́ласць**, -і, *ж.*

**АДЗІЧЭ́ЦЬ** *гл.* дзічэць.

**АДЗНА́КА**, -і, *ДМ* -нáцы, *мн.* -і, -нáк, *ж.* **1.** Знак, метка, след, якія паказваюць на што-н.; запіс, штамп і пад., якія сведчаць што-н. *А. на карце. А. ў дакументах.* **2.** Прыкмета, акалічнасць, па якіх можна вызначыць што-н. *Па ўсіх адзнаках ураджай будзе добры.* **3.** Асаблівасць, рыса, якімі асоба ці прадмет адрозніваюцца ад іншых асоб ці прадметаў. *Індывідуальная а. асобы.* **4.** Агульнапрынятае абазначэнне ацэнкі ведаў і паводзін навучэнцаў. *Атрымаць выдатную адзнаку.* **5.** Ганаровы знак, ордэн, медаль і пад. *Дыплом з адзнакай.*

**АДЗНА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Абазначыць якой-н. меткай; запісаць, паставіць адзнаку для ўліку і пад.; вызначыць. *А. адсутных у журнале. А. камандзіроўку.* **2.** *каго-што.* Звярнуць увагу, заўважыць, указаць на каго-, што-н. *А. добрую якасць працы.* **3.** *каго-што.* Вылучыць сярод іншых за якія-н. заслугі, узнагародзіўшы чым-н. *А. майстроў.* **4.** *што.* Ушанаваць чым-н. якую-н. дату, падзею. *А. заканчэнне інстытута.* ‖ *незак.* **адзнача́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**АДЗО́Л** *гл.* адзаліць.

**АДЗО́ЛЬНЫ** *гл.* адзаліць.

**АДЗЫВА́ННЕ** *гл.* адазваць.

**АДЗЫВА́ЦЦА** *гл.* адазвацца.

**АДЗЫВА́ЦЬ** *гл.* адазваць.

**АДЗЫЎНЫ́**, -áя, -óе (афіц.). Які змяшчае ў сабе паведамленне аб адазванні. *Адзыўная грамата.*

**АДЗЯВА́ННЕ** *гл.* адзець.

**АДКАВА́ЦЬ**, -кую́, -куéш, -куé; -куём, -куяцé, -кую́ць; -кýй; -кавáны; *зак.* **1.** *што.* Выкаваць. *А. падкову.* **2.** *каго-што.* Аддзяліць што-н. прыкаванае; раскаваць. *А. каня.* **3.** Закончыць коўку. ‖ *незак.* **адко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКАВЯЛІ́ЦЬ**, -вялю́, -вéліш, -вéліць; -вéлены; *зак., што* і *чаго* (разм.). Адрэзаць вялікі кавалак чаго-н.; адкроіць. *А. лусту хлеба.* ‖ *незак.* **адкаве́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКА́З**[1], -у, *м.* **1.** Выказванне, паведамленне, выкліканае пытаннем. *Атры-*

*маць а. на пісьмо. Грунтоўны а. вучня на пытанне.* **2.** Рэакцыя, водгук. *А. жывога арганізма на раздражненне.* **3.** Водгук на што-н.; выкліканыя чым-н. дзеянні, учынкі. *У а. на страляніну танк рушыў наперад.* **4.** Вынік рашэння матэматычнай задачы. *Атрымаць правільны а.* **5.** Тое, што і *адказнасць. За мір мы ўсе а. нясём.*

**АДКАЗ**[2]. У выразе: **да адказу** (разм.) — да канца. *Закруціць гайку да адказу.*

**АДКАЗА́ЦЬ**, -кажу́, -ка́жаш, -ка́жа; -кажы́; -ка́заны; *зак.* **1.** *каму, на што* і *без дап.* Сказаць, паведаміць што-н. у адказ на зварот ці запытанне, на пытанне, ліст. *А. на пісьмо.* **2.** *што.* Расказаць настаўніку ўрок. **3.** *чым.* Павесці сябе пэўным чынам у адказ на што-н. *А. жартам. А. вершам.* **4.** Адазвацца, адклікнуцца на голас, покліч і пад. **5.** *за каго-што* і *без дап.* Быць пакараным, панесці адказнасць за каго-, што-н. *А. за свой учынак.* **6.** *што.* Завяшчаць што-н. каму-н. *Ён адказаў сыну частку гаспадаркі.* **7.** *без дап., разм.* Выйсці са строю, сапсавацца. *У трактара адказалі тармазы.* ‖ *незак.* **адка́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКА́ЗНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* адказны. **2.** Неабходнасць, абавязак адказваць за свае дзеянні, учынкі, быць адказным за іх. *Пачуццё адказнасці. Крымінальная а.*

**АДКА́ЗНЫ**, -ая, -ае. **1.** Чалавек, на якога ўскладаецца адказнасць, які адказвае за каго-, што-н. *А. рэдактар. А.* (наз.) *за вечар.* **2.** Вельмі важны, значны, сур'ёзны. *Адказнае даручэнне. Адказная пасада. А. момант.* ‖ *наз.* **адка́знасць**, -і, *ж.*

**АДКА́ЗЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Асоба, якой прад'яўлены судовы іск. *Удзел у справе істца і адказчыка.* **2.** Той, хто нясе адказнасць, адказвае за што-н. (разм.). *Брыгадзір за ўсё а.* ‖ *ж.* **адка́зчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**АДКАЗЫРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* (разм.). Прывітаць па-вайсковаму, прыклаўшы правую руку да казырка.

**АДКАЛАСАВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -су́е; *зак.* Выпусціць колас. *Адкаласавала жыта.*

**АДКАЛАШМА́ЦІЦЬ** *гл.* калашмаціць.

**АДКАЛО́ЦЦА**, -калю́ся, -ко́лешся, -ко́лецца; -калі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Аддзяліцца, адпасці ад таго, што колецца, разбіваецца. *Адкалолася ручка ад збана.* **2.** *перан.* Парваць сувязь з кім-, чым-н., выйсці са складу якой-н. арганізацыі, групы і пад. *А. ад калектыву.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра што-н. прышпіленае: аддзяліцца, адпасці. *Брошка адкалолася.* ‖ *незак.* **адко́лвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **адко́лванне**, -я, *н.* і **адко́л**, -у, *м.* (да 2 знач.).

**АДКАЛО́ЦЬ**, -калю́, -ко́леш, -ко́ле; -калі́; -ко́латы; *зак.* **1.** *што.* Аддзяліць ад цэлага, колючы. *А. кавалачак цукру.* **2.** *перан., каго-што.* Прымусіць парваць з кім-н., выйсці з якой-н. групы, арганізацыі. *А. ад родзічаў.* **3.** Адняць прыколатае або выняць тое, чым прыколата, прышпілена што-н. *А. бант. А. шпільку.* **4.** *што, перан.* Зрабіць, сказаць што-н. недарэчнае, нечаканае (разм.). *А. нумар.* ‖ *незак.* **адко́лваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адко́лванне**, -я, *н.*

**АДКАЛУПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). Аддзяліць, калупаючы; адарваць, адкрышыць што-н. чым-н., якой-н. прыладай. *А. кавалачак тынку.* ‖ *незак.* **адкалу́пваць**, -аю, -аеш, -ае ‖ *аднакр.* **адкалупну́ць**, -ну́, -нёш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́.

**АДКАЛУПІ́ЦЬ**, -луплю́, -лу́піш, -лу́піць; -лу́плены; *зак., што* (разм.). Аддзяліць, укалупнуўшы; адкалупнуць. *А. кавалачак пірага.* ‖ *незак.* **адкалу́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКАМАНДЗІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго* (*што*). Камандзіраваць, накіраваць на працу ці вучобу ў іншае месца, у якую-н. арганізацыю, установу. *А. на курсы механізатараў.* ‖ *незак.* **адкамандзіро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адкамандзіро́ўванне**, -я, *н.*

**АДКАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* адко́паны; *зак., каго-што.* **1.** Капаючы, адшукаць, дастаць; выкапаць. *А. клад.* **2.** *перан.* Знайсці што-н. рэдкае і пад.; адшукаць (разм.). *Дзе вы адкапалі такую кнігу?* **3.** Адкідаць што-н. ад (з) чаго-н. *Адкапаць снег ад ганка.* **4.** Выканаўшы сваю норму, кончыць капаць, капацца (разм.); зрабіцца непрыгодным для капання. *Селянін ужо адкапаў сваё* (перан.). ‖ *незак.* **адко́пваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адко́пванне**, -я, *н.* і **адко́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.*

**АДКАРА́СКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., ад каго-чаго* (разм.). Пазбегнуць, пазбавіцца чаго-н., адчапіцца ад чаго-н. *Ледзь адкараскаўся ад тваіх сяброў.* ‖ *незак.* **адкара́скваць**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДКАРКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* Адаткнуць, выняць корак. *А. бутэльку.* ‖ *незак.* **адкарко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКАРМІ́ЦЬ**, -кармлю́, -ко́рміш, -ко́рміць; -ко́рмлены; *зак., каго-што.* Кормячы, давесці да сытасці, выкарміць; добрай ежай, кормам паправіць. *А. кабана.* ‖ *незак.* **адко́рмліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **адкармі́цца**, -кармлю́ся, -ко́рмішся, -ко́рміцца (разм.); *незак.* **адко́рмлівацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **адко́рм**, -у, *м.* *Паставіць каня на а.*

**АДКАРЭКЦІ́РАВАЦЬ** *гл.* карэкціраваць.

**АДКАСА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* **1.** Адвярнуцца, апусціцца (пра што-н. закасанае). *Рукавы адкасаліся.* **2.** *перан., ад каго-чаго.* Вызваліцца, пазбавіцца ад чаго-н. дакучлівага, непатрэбнага; адчапіцца. *А. ад непрыемнай размовы.*

**АДКАСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што* (разм.). Адвярнуць, апусціць што-н. закасанае. *А. рукавы.* ‖ *незак.* **адка́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКАСІ́ЦЬ**, -кашу́, -ко́сіш, -ко́сіць; -ко́шаны; *зак., што.* **1.** Скасіць невялікую частку чаго-н. (ад краю). *А. траву ад дарогі.* **2.** Пакасіць пэўны час; скончыць касьбу. *Ён тры дні адкасіў.* **3.** Адпрацаваць на касьбе ўзамен за што-н. *А. за доўг.* ‖ *незак.* **адко́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКАСНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* (разм.). Адчапіцца, адстаць, адвязацца. *Адкасніся ад мяне! Калі любіш — ажаніся, а не любіш — адкасніся* (прыказка).

**АДКА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* **1.** *гл.* адкаціць. **2.** Вываз здабытых карысных выкапняў з забояў і шахтаў (спец.). *Падземная а. руды.* ‖ *прым.* **адка́тачны**, -ая, -ае. *А. вагон. Адкатачныя работы.*

**АДКА́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Горнарабочы, які працуе на адкатцы. *А. вугалю.* ‖ *ж.* **адка́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **адка́тчыцкі**, -ая, -ае.

**АДКАЦІ́ЦЦА**, -качу́ся, -ко́цішся, -ко́ціцца; *зак.* **1.** Коцячыся, перамясціцца ў які-н. бок на пэўную адлегласць. *Кола адкацілася. Хваля адкацілася ад берага* (перан.). **2.** *перан.* Пра войска: хутка адступіць пад націскам праціўніка. *Адкаціўся вораг за раку.* ‖ *незак.* **адко́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **адка́т**, -у, *М* -ка́це, *м.*

**АДКАЦІ́ЦЬ**, -качу́, -ко́ціш, -ко́ціць; -ко́чаны; *зак., каго-што.* Коцячы, перамясціць што-н. у іншае месца. *А. бервяно.* ‖ *незак.* **адко́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адка́т**, -у, *М* -ка́це, *м.* і **адка́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**АДКАЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго.* Вярнуць чалавеку прытомнасць. *Ледзь адкачалі тапельца.* ‖*незак.* **адка́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКА́ШЛЯЦЦА**, -яюся, -яешся, -яецца; *зак.* Кашляючы, прачысціць горла; скончыць кашляць. *Ён адкашляўся і пачаў гаварыць.* ‖ *незак.* **адка́шлівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДКА́ШЛЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; *зак., што.* Кашляючы, выплюнуць; кашлем выдаліць што-н., што трапіла ў горла. *А. макроту.* ‖ *незак.* **адка́шліваць**, -аю, -аеш, -ае ‖ *аднакр.* **адкашляну́ць**, -ну́, -нёш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́.

**АДКВІТНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв*). Скончыць квітнець, цвісці; адцвісці. *Адквітнелі каштаны.* **2.** *перан.* Пражыць маладыя гады, страціць свежасць, пастарэць.

**АДКІ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Адкінуць за некалькі разоў. *А. дровы з двара.* ‖ *незак.* **адкіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДКІДНЫ́**, -а́я, -о́е. Які можа адкідвацца, прымацаваны адным краем. *З адкідным верхам машына. Адкіднае крэсла.*

**АДКІ́ДЫ**, -аў. **1.** Непрыгодныя рэшткі чаго-н., адходы. *Скрыня для акідаў. А. вытворчасці.* **2.** Пра маральна апусцелых людзей. *А. грамадства* (перан.). ‖ *прым.* **адкі́дны**, -ая, -ае (спец.).

**АДКІ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Адхіліцца, адваліцца назад тулавам. *А. на спінку крэсла.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раптоўна адчыніцца, адпасці, адсунуцца ў бок. *Адкінуліся дзверцы. Адкінуліся шторы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вярнуцца зноў, аднавіцца (пра хваробу). *Адкінулася гарачка.* **4.** *перан.* Перастаць цікавіцца, аддаліцца, адвярнуцца. *Адкінуліся кавалеры, засталася адна.* ‖ *незак.* **адкі́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДКІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -кі́нь; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Кінуць убок, назад, наперад; рэзка, з сілай адштурхнуць. *А. камень.* **2.** *перан., каго-што.* Не прыняць, адмовіцца ад чаго-н. (разм.). *А. усе магчымасці. А. сумненні.* **3.** *перан., каго-што.* Атакуючы, прымусіць адступіць. *А. ворага далёка назад.* **4.** *што.* Адкрыць, адвесці ўбок, адвярнуць, закінуць назад што-н., замацаванае адным краем. *А. века скрыні.* **5.** Адвесці назад, убок; закінуць (галаву, руку, нагу). *А. галаву.* **6.** *каго-што.* Зменшыць на пэўную колькасць, адняць. *А. сотню рублёў.* **7.** *ас.* і *безас., каго-што.* Вярнуцца (пра хваробу). *Грып яго адкінуў* (разм.). **8.** *што.* Адбіць, стварыць (цень, святло і пад.). *Сад адкінуў густы цень.* **9.** *перан.* Вярнуць да пройдзенай стадыі ў развіцці чаго-н. *Вайна ўсё адкінула назад.* **10.** Не прыняць пад увагу пры лічэнні, ацэнцы каго-, чаго-н. *Улічыць галоўнае, адкінуць выпадковае.* ◊ **Адкінуць хвост (капыты)** (разм.) — памерці. ‖ *незак.* **адкі́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКІПЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які згус, асеў пры кіпенні (высокай тэмпературы). *Адкіпелае малако.*

**АДКІПЕ́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Згуснуць, ссесціся ад кіпення. *Малако адкіпела.* **2.** *перан.* Супакоіцца, уціхнуць. *Адкіпела* (безас.) *на сэрцы.* ‖ *незак.* **адкіпа́ць**, -а́е.

**АДКЛА́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Перанясенне на больш позні тэрмін; адтэрміноўка. *А. не ідзе на лад* (прыказка).

**АДКЛАДА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* адкласціся. **2.** Тое, што і *адклады.*

**АДКЛАДНЫ́**, -а́я, -о́е. Які адкладваецца, апускаецца. *А. каўнер.*

**АДКЛА́ДЫ**, -аў. **1.** Асадак арганічных і неарганічных рэчываў у выніку іх паступовага намнажэння. *Дэвонскія адклады.* **2.** Намнажэнні якіх-н. рэчываў. *Тлушчавыя а.*

**АДКЛА́СЦІ**, -кладу́, -кладзе́ш, -кладзе́; -кладзём, -кладзяце́, -кладу́ць; -кладзі́; -кла́дзены; *зак., што.* **1.** Пакласці ўбок, побач, асобна. *А. патрэбную рэч.* **2.** Захаваць, не расходуючы. *А. грошы на мэблю.* **3.** Назбіраць, назапасіць; утварыць адклады. *Возера адклала тоўсты слой ілу.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Палажыць яйкі, пакінуць пасля сябе для захавання патомства (спец.). *Птушка адклала яйкі.* **5.** Адтэрмінаваць, перанесці. *А. сход. Не адкладвай справы на заўтра, а жаніцьбы на старасць* (з нар.). **6.** Пра каўнер і прадметы, прымацаваныя да чаго-н. адным краем: апусціць, адкінуць. *А. каўнер кажуха.* **7.** У геаметрыі: адмераўшы, адзначыць адрэзак. *На прамой AB а. адрэзак CD.* **8.** *перан.* Пакінуць след, адбітак, зрабіць уплыў. *Перажыванні адклалі свой след.* ‖ *незак.* **адклада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **адкла́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКЛА́СЦІСЯ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -кладзе́цца; *зак.* **1.** Асесці, назбірацца. *Іл адклаўся за гады на дне возера.* **2.** Адтэрмінавацца, перанесціся на больш позні час. *Паездка за горад адклалася.* **3.** *перан.* Запасці ў памяць, душу і пад., адлюстравацца, захавацца. *Уражанні дзяцінства адкаліся ў сэрцы надоўга.* ‖ *незак.* **адклада́цца**, -а́ецца *і* **адкла́двацца**, -аецца. ‖ *наз.* **адклада́нне**, -я, *н.*

**АДКЛЕ́ІЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -е́іцца; *зак.* Адстаць, аддзяліцца (аб прыклееным). *Падэшва адклеілася.* ‖ *незак.* **адкле́йвацца**, -аецца.

**АДКЛЕ́ІЦЬ**, -е́ю, -е́іш, -е́іць; -е́ены; *зак., што.* Адарваць, аддзяліць прыклеенае. *А. марку.* ‖ *незак.* **адкле́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адкле́йванне**, -я, *н.*

**АДКЛЕЙМАВА́ЦЬ**, -кляйму́ю, -кляйму́еш, -кляйму́е; -кляйму́й; -клеймава́ны; *зак., каго-што.* Паставіць кляймо на што-н., каго-н.; заклеймаваць. *А. лес. А. жывёлу.*

**АДКЛЁПВАЦЬ** *гл.* адкляпаць.

**АДКЛЁЎВАЦЬ** *гл.* адкляваць.

**АДКЛІ́КАЦЬ**, -клі́чу, -клі́чаш, -клі́ча; -клі́ч; -клі́каны; *зак., каго-што.* **1.** Паклікаўшы, прымусіць адысці куды-н.; адазваць. *А. знаёмага для размовы.* **2.** Вярнуць назад, прапанаваўшы спыніць выкананне ранейшых абавязкаў (афіц.). *А. пасла.* ‖ *незак.* **адкліка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **адкліка́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**АДКЛІ́КНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* **1.** Адказаць на воклік, зварот; адазвацца, адгукнуцца; прагучаць у адрас. *Дзе вы, адклікніцеся! А. на пісьмо.* **2.** *перан.* Выявіць свае адносіны да чаго-н., выказаць спачуванне, гатоўнасць садзейнічаць чаму-н. *А. на просьбу.* **3.** Абудзіцца, выявіцца пад уплывам чаго-н. (пра ўспаміны, пачуцці). *Голас адклікнуўся ў сэрцы.* ‖ *незак.* **адкліка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АДКЛЮЧЫ́ЦЦА**, -ключу́ся, -клю́чышся, -клю́чыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Перастаць дзейнічаць у выніку раз'яднання з агульнай сістэмай. *Прыбор адключыўся аўтаматычна.* **2.** *перан.* Адарвацца ад каго-, чаго-н., пакінуць ранейшы занятак, супакоіцца. *А. ад бурнага жыцця.* ‖ *незак.* **адключа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АДКЛЮЧЫ́ЦЬ**, -ключу́, -клю́чыш, -клю́чыць; -клю́чаны; *зак., што.* Выключыць, спыніць дзеянне чаго-н., раз'яднаўшы з агульнай сістэмай. *А. тэлефон. А. газ.* ‖ *незак.* **адключа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДКЛЯВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -клюе́; -клява́ны; *зак., што.* Клюючы, аддзяліць, адарваць, ад'есці. *А. чарвяка.* ‖ *незак.* **адклёўваць**, -ае.

**АДКЛЯПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Адбіць што-н. прыкляпанае. *А. заклёпкі.* **2.** Навастрыць, накляпаць касу. ‖ *незак.* **адклёпваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКО́Л** *гл.* адкалоцца.

**АДКО́ЛВАННЕ** *гл.* адкалоцца, адкалоць.

**АДКО́ЛВАЦЦА** *гл.* адкалоцца.

**АДКО́ЛВАЦЬ** *гл.* адкалоць.

**АДКО́ПВАННЕ** *гл.* адкапа́ць.

**АДКО́ПВАЦЬ** *гл.* адкапа́ць.

**АДКО́ПКА** *гл.* адкапа́ць.

**АДКО́РМ** *гл.* адкарміць.

**АДКО́РМАЧНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для адкорму. *А. пункт.*

**АДКО́РМЛІВАЦЦА** *гл.* адкарміць.

**АДКО́РМЛІВАЦЬ** *гл.* адкарміць.

**АДКО́С**, -у, *м.* **1.** Адхон, нахільная паверхня гары і пад. *А. узгорка.* **2.** Бакавая нахільная паверхня дарожнага насыпу. *Адкосы дарог. Умацаваць а.* **3.** Нахільная паверхня чаго-н., якая ідзе пад вуглом (спец.). ‖ *прым.* **адко́сны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**АДКО́ЎВАЦЬ** *гл.* адкаваць.

**АДКО́ЧВАЦЦА** *гл.* адкаціцца.

**АДКО́ЧВАЦЬ** *гл.* адкаціць.

**АДКО́ШВАЦЬ** *гл.* адкасіць.

**АДКРАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Скончыць красаваць, адцвісці (пра збожжавыя). *Жыта адкрасавала.* **2.** *перан.* Паблякнуць, страціць маладосць, прыгажосць. *Сваё адкрасавала дзяўчына.* ‖ *незак.* **адкрасо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКРА́СЦІ**, -кра́ду, -кра́дзеш, -кра́дзе; -кра́дзены; *зак., каго-што* (разм.). Украсці; украсці тое, што было забрана, адабрана. *А. сена.* ‖ *незак.* **адкра́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКРО́ІЦЬ**, -ро́ю, -ро́іш, -ро́іць; -ро́ены; *зак., што* і *чаго.* Адрэзаць ад цэлага ці кавалка (часцей пра хлеб). *А. лусту хлеба.* ‖ *незак.* **адкро́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКРУЦІ́ЦЦА**, -ручу́ся, -ру́цішся, -ру́ціцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Раскруціўшыся, аддзяліцца; адшрубавацца. *Вяроўка адкруцілася. Адкруцілася гайка.* **2.** Павярнуўшыся, адкрыцца. *Кран адкруціўся.* **3.** Зламацца, адарвацца ад пакручвання ў розныя бакі; пераkруціцца. *Спелая макаўка лёгка адкруцілася.* **4.** Скончыць круціцца, адкружыцца. *Адкруціліся пары ў вальсе.* **5.** Ухіліцца, хітра вызваліцца ад чаго-н. з дапамогай выдумак (разм.). *А. ад паездкі.* ‖ *незак.* **адкру́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДКРУЦІ́ЦЬ**, -ручу́, -ру́ціш, -ру́ціць; -ру́чаны; *зак., што.* **1.** Круцячы, аддзяліць, зняць, адшрубаваць; адарваць. *А. дрот. А. гайку. А. кран.* **2.** Павярнуўшы ўбок, адкрыць; раскручваючы, разгарнуць, раскрыць. *А. кран. А. паперу.* ◊ **Адкруціць га-**

**лаву (вушы)** *каму* (разм., незадав.) — пагроза пакараць, расправіцца. ‖ *незак.* **адкру́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКРЫ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Нічым не загароджаны, не прыкрыты; аголены; без покрыва зверху, з бакоў. *А. прастор. Адкрытае мора. Смажыць на адкрытым агні. Хадзіць з адкрытай галавой.* **2.** Даступны для ўсіх жадаючых. *А. сход.* **3.** Не тайны, яўны. *А. пратэст. Адкрыта* (прысл.) *выступіць з крытыкай недахопаў. Адкрытае галасаванне* (падняццем рук, не тайнае). **4.** Шчыры, прамы, даверлівы. *А. твар. А. характар.* **5.** Тое, што і *разгорнуты. Адкрытая кніга. А. журнал.* **6.** З вялікім вырезам. *Адкрытае плацце.* **7.** Не падземны, з агаленнем пласта. *А. спосаб здабычы вугалю.* ○ **Адкрытае пісьмо** — пісьмо каму-н., якое публікуецца ў друку. **Адкрытае пытанне** — нявырашанае пытанне. **Адкрытая рана** — рана, якая не зажыла. **Адкрыты лоб** — вялікі і круты лоб. ◊ **У адкрытую** (ісці, дзейнічаць) (разм.) — не ўтойваючы сродкаў і прыёмаў. ‖ *наз.* **адкры́тасць**, -і, *ж.* (да 4 знач.).

**АДКРЫ́ЦЦА**, -ры́юся, -ры́ешся, -ры́ецца; *зак.* **1.** Стаць адкрытым; адчыніцца (*гл.* адкрыць). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра рану: перастаць зажываць, разысціся краямі. *Адкрыліся старыя раны.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Стаць бачным, паказацца. *Наперадзе адкрыўся цудоўны краявід.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выявіцца, з'явіцца (разм.). *Адкрылася хвароба.* **5.** *каму.* Расказаць пра сябе адкрыта, шчыра, прызнацца ў чым-н. *А. свайму сябру.* **6.** Стаць зразумелым каму-н. *Перад намі адкрылася ясная будучыня. Свет мастацтва адкрыўся для мяне.* **7.** *перан.* Стаць даступным, магчымым. *Перад ім адкрываліся ўсе дзверы.* **8.** Пачаць сваё існаванне, дзейнасць (пра ўстанову, прадпрыемства і пад.). *У суседняй вёсцы адкрылася школа.* ‖ *незак.* **адкрыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АДКРЫЦЦЁ**, -я́, *мн.* -кры́цці, -яў, *н.* **1.** *гл.* адкрыць. **2.** Тое, што выяўлена, стала вядомым у выніку даследаванняў і пад., новая ісціна. *Навуковае а. А. атамнай энергіі.* **3.** Тое, што неспадзявана для каго-н. устаноўлена, выяўлена, пазнана. *І раптам нечаканае а.: ён піша вершы.*

**АДКРЫ́ЦЬ**, -ры́ю, -ры́еш, -ры́е; -ры́ты; *зак., што.* **1.** Тое, што і *адчыніць. А. хату. А. вокны.* **2.** Зрабіць даступным для чаго-н., раскрыць, распячатаць, адкаркаваць і пад. *А. кансервы. А. бутэльку А. пісьмо.* **3.** Раскрыць, разамкнуць. *А. кніжку. А. ноты. А. вочы.* **4.** Зняць што-н. зверху, агаліць. *А. твар. А. грудзі.* **5.** Увесці ў дзеянне, пусціць што-н. *А. газ. А. ваду.* **6.** Выявіць, паведаміць адкрыта, не таячыся, што-н. *А. праўду. А. свае планы.* **7.** Даць шырокія магчымасці для развіцця чаго-н. *А. дарогу новаму.* **6.** Пачаць што-н., пакласці пачатак якім-н. дзеяннем, дзейнасці. *А. сход. А. рахунак. А. тэатральны сезон. А. агонь* (пачаць страляць). **9.** Устанавіць наяўнасць, існаванне чаго-н. у выніку даследавання. *А. залежы вугалю. А. Амерыку* (перан.: сказаць, аб'явіць тое, што даўно вядома; іран.). **10.** Заўважыць невядомыя да гэтага здольнасці, якасці. *А. у сабе талент.* ‖ *незак.* **адкрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **адкрыццё**, -я́, *н. і* **адкрыва́нне**, -я, *н.*

**АДКРЭ́СЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Аддзяліць або выдзеліць рыскай. *А. патрэбны тэкст у кнізе.* ‖ *незак.* **адкрэ́сліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДКУКАВА́ЦЬ**, -куку́ю, -куку́еш, -куку́е; -куку́й; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Скончыць, перастаць кукаваць. *Адкукавала зязюля.* **2.** *перан.* Адбыць пэўны час у цяжкіх умовах (разм.). *Дзесяць месяцаў адкукаваў у каталажцы.*

**АДКУ́ЛЬ**, *прысл.* **1.** *пыт.* З якога месца, з якой крыніцы, ад каго; ужыв. ў клічна-пытальных сказах пры выказванні нязгоды, адмаўлення чаго-н. *А. едзеце? Толькі кудзеля і будзе... А. той кужаль. А. гэта вядома?* **2.** *адносн*ае. Ужыв. як злучальнае слова для падпарадкавання даданых сказаў месца, даданых азначальных сказаў, даданых дапаўняльных сказаў (у адпаведнасці з суадноснымі словамі «там», «туды», «адтуль», «той» і іншымі ў галоўным сказе). *Мы глянулі туды, а. пачуліся галасы.* ◊ **Адкуль (толькі) ногі ўзяліся** — пра таго, хто хутка ўцякае.

**АДКУ́ЛЬ-НЕ́БУДЗЬ**, *прысл.* З якога-н. месца, з якой-н. крыніцы. *А. даведаемся.*

**АДКУПІ́ЦЦА**, -куплю́ся, -ку́пішся, -ку́піцца; *зак., ад каго-чаго.* Вызваліцца ад якой-н. залежнасці, ад якіх-н. абавязкаў за плату, хабар і пад.; выкупіць сябе. *Ледзь адкупіўся.* ‖ *незак.* **адкупля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**АДКУПІ́ЦЬ**, -куплю́, -ку́піш, -ку́піць; -ку́плены; *зак., што.* **1.** Атрымаць права на што-н., заплаціўшы грошы; узяць на водкуп; купіць (уст.). *А. увесь ураджай.* **2.** Купіўшы што-н., аддаць замест сапсаванага, згубленага (разм.). *А. кнігу.* ‖ *незак.* **адкупля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АДКУПНЫ́** *гл.* водкуп.

**АДКУ́ПШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (гіст.). Той, хто набыў права на які-н. від дзяржаўных адходаў, падаткаў; уладальнік водкупу.

**АДКУСІ́ЦЬ**, -кушу́, -ку́сіш, -ку́сіць; -ку́шаны; *зак., што* і *чаго.* Кусаючы, аддзяліць частку ад цэлага; адцяць шчыпцамі, кусачкамі. *А. хлеба. А. кавалак дроту.* ‖ *незак.* **адку́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЛАВІ́ЦЬ**, -лаўлю́, -ло́віш, -ло́віць; -ло́ўлены; *зак., каго* (*што*). **1.** Скончыць лавіць. **2.** Злавіць, вылавіць (спец.). *А. шмат рыбы.* ‖ *незак.* **адло́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.). ‖ *наз.* **адло́ўліванне**, -я, *н.* (да 2 знач.) *і* **адло́ў**, -ло́ву, *м.* (да 2 знач.; спец.).

**АДЛАЖЫ́ЦЬ**, -лажу́, -ло́жыш, -ло́жыць; *зак., што.* Тое, што і *адкласці* (у 1 і 2 знач.).

**АДЛАКІРАВА́ЦЬ** *гл.* лакіраваць.

**АДЛАМА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ло́міцца; *зак.* Ломячыся, зламаўшыся, адпасці, аддзяліцца. *Ручка дзвярэй адламалася.* ‖ *незак.* **адло́млівацца**, -аецца *і* **адло́мвацца**, -аецца.

**АДЛАМА́ЦЬ**, -ламлю́, -ло́міш, -ло́міць; -ламі́; -лама́ны *і* -ло́маны; *зак., што* і *чаго.* Ломячы, зламаўшы, аддзяліць; адбіць, адкрышыць. *А. кавалак пароды. А. кавалак хлеба.* ‖ *незак.* **адло́мліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **адло́мваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЛЕ́ГЛАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Прастора, якая раздзяляе два пункты, прамежак паміж чым-н. *Велізарная а. раздзяляе нас. Трымаць на адлегласці* (таксама перан.: пазбягаць блізкіх адносін, збліжэння з кім-н.). **2.** Адрэзак шляху пэўнай велічыні, працягласці. *За гадзіну спадарожнік праходзіць велізарную а.* **3.** Больш-менш аддаленае месца; далечыня. *Перадача энергіі на далёкія адлегласці.*

**АДЛЕ́ГЛЫ**, -ая, -ае. Аддалены (у прасторы, часе, паводле ступені развіцця).

**АДЛЕ́ГЧЫ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ля́жа, -ля́гуць; -лёг, -ле́гла, -лягло́; *зак.* **1.** Знікнуць, перастаць адчувацца (пра трывогу, боль і пад.), супакоіцца. *Боль ад сэрца адлёг. Сэрца не камень, адляжа* (прыказка). *На душы адлягло* (безас.). **2.** Спасці, паменшаць (пра холад, мароз). *Мароз адлёг. Пад раніцу адлегла* (безас.). ‖ *незак.* **адляга́ць**, -а́е.

**АДЛЕ́ЖАЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; -жся *і* **АДЛЯЖА́ЦЦА**, -жу́ся, -жы́шся, -жы́цца; -жы́мся, -лежыцёся, -жа́цца; -жы́ся; *зак.* (разм.). Паляжаўшы, адпачыць, аднавіць сілы, акрыяць (пасля хваробы, стомы і пад.). *Адляжаўся ў бальніцы, паправіўся.* ‖ *незак.* **адле́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДЛЕ́ЖАЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -ле́ж *і* **АДЛЯЖА́ЦЬ**, -жу́, -жы́ш, -жы́ць; -жы́м, -лежыце́, -жа́ць; -жы́; -ле́жаны; *зак.* **1.** *што.* Лежачы доўга або ў нязручнай позе, выклікаць зняменне якой-н. часткі цела. *А. руку. А. бакі.* **2.** Хварэючы, праляжаць пэўны час у пасцелі (разм.). *Адляжаў тыдзень у бальніцы.* ‖ *незак.* **адле́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЛЕ́ЗЦІ**, -зу, -зеш, -зе; -ле́зь; *зак.* (разм.). Перастаць чапляцца, адчапіцца. *Адлезь ты ад яго!*

**АДЛЕ́ПЛІВАЦЦА** *гл.* адляпіцца.

**АДЛЕ́ПЛІВАЦЬ** *гл.* адляпіць.

**АДЛЕ́ТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; *зак.* (разм.) Прабыць, пераржыць лета.

**АДЛЁТ** *гл.* адляцець.

**АДЛЁТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** Скончыць лётаць. *Ён сваё адлётаў.* **2.** *што.* Прабыць у авіяцыі, пралётаць пэўны час (разм.). *Дзесяць гадоў адлётаў.*

**АДЛЁТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адлятае на новае месца; пералётны. *Адлётныя птушкі.* **2.** Перыяд, у які птушкі адлятаюць у вырай. *Набліжаецца а. час.*

**АДЛІВА́ННЕ**[1] *гл.* адліць[1].

**АДЛІВА́ННЕ**[2] *гл.* адліць[2].
**АДЛІВА́ЦЦА**[1] *гл.* адліцца[1].
**АДЛІВА́ЦЦА**[2] *гл.* адліцца[2].
**АДЛІВА́ЦЬ**[1] *гл.* адліць[1].
**АДЛІВА́ЦЬ**[2] *гл.* адліць[2].
**АДЛІ́ВАЧНЫ** *гл.* адліць[2].

**АДЛІ́ГА**, -і, *ДМ* -лізе, *мн.* -і, -ліг, *ж.* Пацяпленне зімой (ранняй вясной) пасля марозу павышэннем тэмпературы вышэй нуля. *Цёплы вецер прынёс адлігу.* ‖ *прым.* **адліжны**, -ая, -ае.

**АДЛІ́К** *гл.* адлічыць.

**АДЛІНЕ́ІЦЬ**, -не́ю, -не́іш, -не́іць; -не́ены; *зак., што.* Аддзяляць лініяй (лініямі). *А. палі ў сшытку.* ‖ *незак.* **адлінейваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЛІ́ПНУЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не; -ліп, -пла; *зак.* (разм.). Тое, што і *адляпіцца. Марка адліпла.* ‖ *незак.* **адліпа́ць**, -а́е.

**АДЛІТАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ту́ецца; *зак.* (уст.). Тое, што і *адпаяцца.* ‖ *незак.* **адліто́ўвацца**, -аецца.

**АДЛІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што* (уст.). Тое, што і *адпаяць.* ‖ *незак.* **адліто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЛІ́Ў**[1], -ліву, *мн.* -лівы, -ліва́ў, *м.* **1.** *гл.* адліць[1]. **2.** Перыядычнае адступленне (паніжэнне) мяжы мора, акіяна. *Гадзіны прыліву і адліву на моры.* **3.** *перан.* Спад у развіцці чаго-н., убыванне. *Чутны прылівы і адлівы людскога гоману.* ‖ *прым.* **адліўны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Адліўнае цячэнне.*

**АДЛІ́Ў**[2], -ліву, *м.* Водсвет, дадатковае адценне на фоне якога-н. колеру. *Русыя валасы з залацістым адлівам.*

**АДЛІ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ліўцы, *ж.* **1.** *гл.* адліць[2]. **2.** Выраб, атрыманы шляхам ліцця. *Чыгуначная а.*

**АДЛІ́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., адалье́цца *і* адліе́цца; *зак.* Пра вадкасць: часткова выліцца. *Вада з карыта адлілася.* ‖ *незак.* **адліва́цца**, -а́ецца. ◊ **Адальюцца слёзы** *чые і каму* — хто-н. паплаціцца за ўчыненае каму-н. зло, крыўду і пад.

**АДЛІ́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., адалье́цца; *зак.* Быць зробленым з дапамогай ліцця. ‖ *незак.* **адліва́цца**, -а́ецца.

**АДЛІ́ЦЬ**[1], адалью́, адалье́ш, адалье́; адальём, адальяце́, адалью́ць *і* адлію́, адліе́ш, адліе́; адліём, адліяце́, адлію́ць; адлі́ў, адлі́ла́, адліло́; адлі́; адлі́ты; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Выліць частку вадкасці з чаго-н. *А. літр малака. А. вады з вядра.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Адхлынуць (пра кроў). *Кроў адліла ад твару.* **3.** *каго.* Аблі́ўшы вадой, прывесці каго-н. да прытомнасці (разм.). *А. хворага халоднай вадой.* **4.** Ліць, ісці на працягу якога-н. часу (пра дождж); скончыць ліць. *Цэлы тыдзень адлілі дажджы.* ‖ *незак.* **адліва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—3 знач.). ‖ *наз.* **адліва́нне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.) *і* **адлі́ў**, -ліву, *м.* (да 2 знач.).

**АДЛІ́ЦЬ**[2], адалью́, адалье́ш, адалье́; адальём, адальяце́, адалью́ць; адлі́ў, адліла́, адліло́; адлі́; адлі́ты; *зак., што.* Вырабіць ліццём. *А. статуэтку з бронзы.* ‖ *незак.* **адліва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **адліва́нне**, -я, *н. і* **адлі́ўка**, -і, *ДМ* -ліўцы, *ж.* ‖ *прым.* **адліўны́**, -а́я, -о́е *і* **адлі́вачны**, -ая, -ае.

**АДЛІ́ЧЫЦЬ**, -лічу́, -лі́чыш, -лі́чыць; -лі́чаны; *зак., каго-што.* **1.** Лічачы ад умоўнай адзінкі, назваць, паказаць колькасць чаго-н. *Гадзіннік адлічыў дзесяць гадзін.* **2.** Налічыўшы, аддзяліць пэўную колькасць чаго-н. *А. дваццаць рублёў.* **3.** Вылічыць, утрымаць з якой-н. сумы. *А. з зарплаты частку грошай.* **4.** Выключыць з ліку навучэнцаў з якой-н. установы і пад; тое, што і *звольніць* (афіц.). *А. прагульшчыкаў з завода. А. з універсітэта.* ‖ *наз.* **адлі́к**, -у, *м. А. часу.*

**АДЛІЧЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* адлічыць. **2.** Адлічаная сума. *А. ў фонд міру.*

**АДЛО́ЖЫСТЫ**, -ая, -ае. Пакаты, адхонны, не круты. *А. бераг рэчкі.*

**АДЛО́МАК**, -мка, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* **1.** Адламаны кавалак чаго-н.; абломак. *А. касы.* **2.** *перан.* Рэшткі таго, што раней існавала. *А. старога свету* (перан.: астатак).

**АДЛО́МВАЦЦА** *гл.* адламацца.
**АДЛО́МЛІВАЦЦА** *гл.* адламацца.
**АДЛО́МВАЦЬ** *гл.* адламаць.
**АДЛО́МЛІВАЦЬ** *гл.* адламаць.
**АДЛО́Ў** *гл.* адлавіць.
**АДЛО́ЎЛІВАННЕ** *гл.* адлавіць.
**АДЛО́ЎЛІВАЦЬ** *гл.* адлавіць.
**АДЛО́ЎНЫ** *гл.* адлавіць.
**АДЛУПІ́ЦЦА** *гл.* лупіцца.
**АДЛУПІ́ЦЬ** *гл.* лупіць[1].
**АДЛУПЦАВА́ЦЬ** *гл.* лупцаваць.

**АДЛУЧЫ́ЦЦА**, -лучу́ся, -лу́чышся, -лу́чыцца; *зак.* **1.** Пакінуць якое-н. месца на нейкі час; часова выйсці. *А. на мінутку з дому.* **2.** Аддзяліцца, адысці ад каго-, чаго-н. *А. ад калоны людзей.* ‖ *незак.* **адлуча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **адлу́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж. Самавольная а.*

**АДЛУЧЫ́ЦЬ**, -лучу́, -лу́чыш, -лу́чыць; -лу́чаны; *зак., каго-што, ад чаго.* Аддзяліць ад каго-, чаго-н., адасобіць; раздзяліць. *А. авечку ад чарады. А. ад царквы* (прызнаць чужым царкве). *Пясок адлучыў частку возера.* ‖ *незак.* **адлу́чваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **адлуча́ць**, -а́е, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **адлучэ́нне**, -я, *н.*

**АДЛУ́ШЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -лу́шчыцца; *зак.* Лушчачыся, адваліцца, адпасці. ‖ *незак.* **адлу́шчвацца**, -аецца.

**АДЛЮСТРАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* адлюстраваць. **2.** Адбітак прадмета на гладкай люстраной паверхні. *А. дрэў у вадзе.* **3.** Адбітак у нашай свядомасці з'яў аб'ектыўнай рэальнасці. *Навуковая тэорыя адлюстравання.* **4.** Тое, што ўвасабляецца ў мастацкіх вобразах і малюнках. *А. жыцця ў мастацкім творы.* **5.** Тое, што з'яўляецца вонкавым выяўленнем чаго-н.; адбітак. *Убачыць а. радасці ў вачах.*

**АДЛЮСТРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *зак.* **1.** Даць, атрымаць адлюстраванне на гладкай бліскучай паверхні. *Адлюстраваўся месяц у вадзе.* **2.** Адбіцца ў свядомасці чалавека ў форме вобразаў і паняццяў. **3.** Увасобіцца ў мастацкіх вобразах, праявіцца. *Жыццё найлепш адлюстравалася ў кнізе паэта.* **4.** (*1 і 2 не ўжыв.*). Выявіцца, атрымаць знешняе праяўленне. *На твары адлюстраваўся страх.* ‖ *незак.* **адлюстро́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДЛЮСТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *што.* Узнавіць, перадаць чый-н. вобраз на сваёй люстраной паверхні, адкінуць у адваротным напрамку светавыя промні. *Возера адлюстравала кроны пышных дрэў.* **2.** Перадаць у вобразах або паняццях аб'ектыўную рэальнасць. **3.** Ахарактарызаваць, перадаць сутнасць, змест, унутраныя асаблівасці чаго-н. *Чалавек стараўся падабраць такія словы, якія б дакладна адлюстравалі яго душэўны стан.* **4.** Увасобіць у мастацкіх вобразах, паказаць, намаляваць. *А. жыццё народа ў рамане.* ‖ *незак.* **адлюстро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адлюстрава́нне**, -я, *н.*

**АДЛЯГА́ЦЬ** *гл.* адлегчы.
**АДЛЯЖА́ЦЦА** *гл.* адлежацца.
**АДЛЯЖА́ЦЬ** *гл.* адлежаць.

**АДЛЯПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ле́піцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *адклеіцца, адстаць. Адляпілася марка.* ‖ *незак.* **адле́плівацца**, -аецца *і* **адляпля́цца**, -я́ецца.

**АДЛЯПІ́ЦЬ**, -ляплю́, -ле́піш, -ле́піць; -ле́плены; *зак., што* (разм.). Тое, што і *адклеіць. А. наклейку.* ‖ *незак.* **адле́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЛЯТА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** Скончыць лятаць. **2.** *што.* Прабыць у авіяцыі, у лётным саставе пэўны час. *Пятнаццаць гадоў адлятаў.*

**АДЛЯТА́ЦЬ**[2] *гл.* адляцець.

**АДЛЯЦЕ́ЦЦА**, -лячу́ся, -ляці́шся, -ляці́цца; -ляці́мся, -лецце́ся, -ляця́цца; -ляці́ся; *зак.* (разм.). Летучы, перамясціцца, аддаліцца на пэўную адлегласць. *Варона крыху адляцелася і села.* ‖ *незак.* **адлята́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АДЛЯЦЕ́ЦЬ**, -лячу́, -ляці́ш, -ляці́ць; -ляці́м, -лецце́, -ляця́ць; -ляці́; *зак.* **1.** Летучы, перамясціцца, аддаліцца ад каго-, чаго-н. на пэўную адлегласць. *А. на дзесяць кіламетраў.* **2.** Паляцець; пакінуць якое-н. месца, вылецеўшы. *Адляцелі буслы ў вырай.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Адысці, мінуць, знікнуць (кніжн.). *Дні дзяцінства адляцелі.* **4.** Адскочыць убок ад моцнага ўдару, штуршка (разм.). *Мячык адляцеў ад сцяны.* **5.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Адарвацца, адпасці (пра што-н. прымацаванае; разм.). *Наклейка адляцела.* ‖ *незак.* **адлята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДМАБІЛІЗАВА́ЦЦА** *гл.* мабілізавацца.
**АДМАБІЛІЗАВА́ЦЬ** *гл.* мабілізаваць.

**АДМАЙСТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Зрабіць, выш-

тукаваць што-н. старанна, адмыслова. *А. скрыпку.*

**АДМАКА́ЦЬ** *гл.* адмокнуць.

**АДМАКРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *зак.* (разм.). Праняцца вільгаццю, зрабіцца мокрым. *Адмакрэлі запалкі.*

**АДМАЛАЦІ́ЦЬ**, -лачу́, -ло́ціш, -ло́ціць; -ло́чаны; *зак., каго-што.* **1.** Змалаціць, скончыць малаціць (разм.). **2.** Адпрацаваць на малацьбе за доўг. **3.** *перан.* Моцна набіць каго-н., адлупцаваць (разм.). *Адмалацілі так, што больш красці не будзе.* **4.** *перан., што* і *без дап.* У хуткім тэмпе, абы-як прачытаць, сказаць; адбарабаніць (разм.). *Адмалаціў даклад і з трыбуны далоў.*

**АДМА́ЛКУ**, *прысл.* З маленства, змалку. *Прывучаць дзяцей да працы а.*

**АДМАЛО́ЦЬ**, -мялю́, -ме́леш, -ме́ле; -мялі́; *зак., што* і *без дап.* **1.** Папрацаваць пэўны час, мелючы што-н. *А. два дні.* **2.** Скончыць малоць. *Адмалоў сваё стары млын.*

**АДМАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Старанна намаляваць што-н. (алеем, фарбамі). **2.** Размаляваць, пафарбаваць, упрыгожыць. *А. хату.* **3.** Скончыць займацца маляваннем. *Ён сваё ўжо адмаляваў.* **4.** *перан.* Вобразна апісаць, абмаляваць.

**АДМАРО́ЗІЦЬ**, -ро́жу, -ро́зіш, -ро́зіць; -ро́жаны; *зак., што.* Моцна пашкодзіць на марозе якую-н. частку цела. *А. вушы.* ‖ *незак.* **адмаро́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДМАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* і *чаго.* Матаючы, аддзяліць. *А. бінт. А. частку нітак.* ‖ *незак.* **адмо́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адмо́тванне**, -я, *н.*

**АДМАЎЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* адмаўляць. **2.** Адмоўны адказ на просьбу, патрабаванне і пад. *Яго словы гучалі як а.* **3.** Непрызнанне чаго-н. *А. старога свету.* **4.** Тое, што адмаўляе сабой, сваім існаваннем што-н. *Фашызм — гэта поўнае а. дэмакратыі.*

**АДМАЎЛЯ́ЦЦА** *гл.* адмовіцца.

**АДМАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., што.* **1.** *гл.* адмовіць. **2.** Не прызнаваць існавання, значэння, мэтазгоднасці чаго-н.; абвяргаць што-н., выступаць супраць чаго-н. *А. мастацтва. А. сваю віну.* ‖ *наз.* **адмаўле́нне**, -я, *н.*

**АДМАЎЧА́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца; -чы́ся; *зак.* (разм.). Прамаўчаць, ухіліцца ад адказу, гутаркі. ‖ *незак.* **адмо́ўчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДМАХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** Прамахаць пэўны час чым-н. **2.** *што.* Прайсці, праехаць вялікую адлегласць (разм.). *А. дзесяць кіламетраў.* ‖ *незак.* **адма́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДМАХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Узмахам адагнаць ад сябе каго-, што-н. *А. ад мух.* **2.** Махнуць рукой у знак пратэсту, нязгоды з чым-н. **3.** *перан.* Адмовіцца рабіць што-н., не жадаючы разабрацца ў справе (разм.). *А. ад таго, што было. А. ад вырашэння пытанняў.* ‖ *незак.* **адма́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. *А. рукамі і нагамі* (наадрэз адмаўляцца ад каго-, чаго-н.).

**АДМАХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., што.* Узмахам рукі, галавы адагнаць, адкінуць. *А. камароў.* ‖ *незак.* **адма́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДМАЦАВА́ЦЦА**, -цу́юся, -цу́ешся, -цу́ецца; -цу́йся; *зак.* (афіц.). Зняцца з уліку. ‖ *незак.* **адмацо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **адмацава́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **адмацава́льны**, -ая, -ае. *А. талон.*

**АДМАЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Зняць з уліку адкуль-н. (афіц.). **2.** Скасаваць прымацаванне. *А. навучэнцаў.* ‖ *незак.* **адмацо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адмацава́нне**, -я, *н.*

**АДМАЧЫ́ЦЬ**, -мачу́, -мо́чыш, -мо́чыць; -мо́чаны; *зак., што.* **1.** Намачыўшы што-н., аддзяліць, адклеіць. *А. прысохлы бінт. А. наклейку.* **2.** Вымачыць, зрабіць больш прыдатным для выкарыстання (спец.). *А. скуры.* **3.** *перан.* Сказаць або зрабіць што-н. недарэчнае, непрыстойнае (разм.). *Ну і адмачыў штуку!* ‖ *незак.* **адмо́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адмо́чванне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.) *і* **адмо́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **адмо́чны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.).

**АДМЕЖАВА́ЦЦА**, -мяжу́юся, -мяжу́ешся, -мяжу́ецца; -мяжу́йся; *зак.* **1.** Аддзяліцца мяжой ад каго-н. **2.** *перан.* Заняць адасобленае ад каго-, чаго-н. становішча, спыніць зносіны з кім-н., выказаць нязгоду з чым-н. *А. ад такіх сяброў.* ‖ *незак.* **адмяжо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *наз.* **адмяжо́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **адмежава́нне**, -я, *н.*

**АДМЕЖАВА́ЦЬ**, -мяжу́ю, -мяжу́еш, -мяжу́е; -мяжу́й; -межава́ны; *зак., што.* **1.** Мяжуючы, аддзяліць. *А. участак.* **2.** *перан.* Аддзяліць, адасобіць адну з'яву ад другой. ‖ *незак.* **адмяжо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **адмяжо́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **адмежава́нне**, -я, *н.*

**АДМЕ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* (радзей) **АДМЕ́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Тое, што і *водмель.*

**АДМЕ́НА** *гл.* адмяніць.

**АДМЕ́ННАСЦЬ**, -і, *ж.* Асаблівасць, якой вылучаецца хто-, што-н. сярод іншых; што-н. непадобнае да звычайнага, штодзённага. *А. характару.*

**АДМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Своеасаблівы, адметны; не такі, як усе. *А. сэнс слова.* **2.** Самы лепшы, надзвычайны; добры па якасці. *Адменнае футра. А. абед.*

**АДМЕ́НЬВАЦЬ** *гл.* адмяніць.

**АДМЕ́РАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** Мераючы, адзначыць або аддзяліць пэўную колькасць чаго-н. *А. паўтара метра сукна. Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж* (прыказка). **2.** Прайсці, праехаць пэўную адлегласць (разм.). *Адмераў пятнаццаць кіламетраў.* ‖ *незак.* **адме́рваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **адмяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДМЕ́РЗНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -мёрз, -ме́рзла; *зак.* **1.** Загінуць ад марозу, вымерзнуць. *Агуркі адмерзлі.* **2.** *разм.* Моцна азябнуць (пра часткі цела); страціць гібкасць, адчувальнасць на холадзе. *Адмерзлі вушы на марозе.* ‖ *незак.* **адмярза́ць**, -а́е. ‖ *наз.* **адмярза́нне**, -я, *н.*

**АДМЕ́РЛЫ**, -ая, -ае. Які перастаў існаваць, адмёр. *Адмерлыя парасткі.*

**АДМЕ́РЦІ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., адамрэ́; адмёр, -ме́рла; *зак.* **1.** Страціць жыццяздольнасць, стаць нежывым, загінуць (пра часткі якога-н. арганізма, расліны). *Клеткі тканак адмерлі.* **2.** *перан.* Перастаць існаваць, знікнуць (пра грамадскія з'явы, асаблівасці быту і пад.). *Старыя звычаі адмерлі.* ‖ *незак.* **адміра́ць**, -а́е. ‖ *наз.* **адміра́нне**, -я, *н.*

**АДМЕ́СЦІ**, -мяту́, -мяце́ш, -мяце́; -мяцём, -мецяце́, -мяту́ць; -мёў, -мяла́, -ло́; -мяці́; -ме́цены; *зак., што.* **1.** Падмятаючы, адкінуць, адсунуць убок. *А. смецце ад парога.* **2.** *перан.* Адхіліць што-н. як непатрэбнае ці нерэальнае. *А. абвінавачанні.* ‖ *незак.* **адмята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДМЕ́ТНЫ**, -ая, -ае. Не падобны да іншых, непаўторны, характэрны. *Адметная рыса характару.* ‖ *наз.* **адме́тнасць**, -і, *ж.*

**АДМІНІСТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак.* **1.** Пра адміністрацыю: кіраваць чым-н. (спец.). **2.** *перан.* Кіраваць чым-н. фармальна, бюракратычна (неадабр.). ‖ *наз.* **адміністрава́нне**, -я, *н.*

**АДМІНІСТРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Службовая асоба, якая кіруе чым-н.; адказны распарадчык. *Добры а.* ‖ *ж.* **адміністра́тарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **адміністра́тарскі**, -ая, -ае.

**АДМІНІСТРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Органы выканаўчай улады, кіравання. **2.** *зб.* Службовыя асобы кіравання. *А. завода.* ‖ *прым.* **адміністрацы́йны**, -ая, -ае. *У адміністрацыйным парадку* (паводле распараджэння выканаўчай улады).

**АДМІРА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вышэйшае воінскае званне каманднага саставу ваенна-марскіх сіл, а таксама асоба, якая мае такое званне. *А. флоту.* ‖ *прым.* **адміра́льскі**, -ая, -ае.

**АДМІРАЛЦЕ́ЙСТВА**, -а, *н.* **1.** Месца пабудовы, абсталявання і рамонту ваенных караблёў (уст.). **2.** У царскай Расіі і Англіі: міністэрства ваенна-марскога флоту; марское ведамства. ‖ *прым.* **адміралце́йскі**, -ая, -ае.

**АДМІРА́ННЕ** *гл.* адмерці.

**АДМІРА́ЦЬ** *гл.* адмерці.

**АДМО́ВА**, -ы, *ж.* **1.** *гл.* адмовіцца, адмовіць. **2.** Тое, што і *адмаўленне* (у 2 знач.).

**АДМО́ВІЦЦА**, -мо́ўлюся, -мо́вішся, -мо́віцца; *зак.* **1.** Не згадзіцца, не пажадаць зрабіць што-н., не захацець прызнаць, прыняць што-н. *А. ад дапамогі.* **2.** Парваць сувязі з роднымі, блізкімі; адрачыся. *А. ад бацькоў.* **3.** Не прызнаць за сваё, не пацвердзіць чаго-н.; перастаць трымацца чаго-н., адступіцца

і 2 знач.). *Лінія адрэзу* (па якой трэба адрэзаць).

**АДРЭКАМЕНДАВА́ЦЦА** *гл.* рэкамендавацца.

**АДРЭКАМЕНДАВА́ЦЬ** *гл.* рэкамендаваць.

**АДРЭПЕЦІ́РАВАЦЬ** *гл.* рэпеціраваць.

**АДРЭСТАЎРЫ́РАВАЦЬ** *гл.* рэстаўрыраваць.

**АДРЭТУШАВА́ЦЬ** *гл.* рэтушаваць.

**АДРЭЦЭНЗАВА́ЦЬ** *гл.* рэцэнзаваць.

**АДСАДЗІ́ЦЬ**, -саджу́, -са́дзіш, -са́дзіць; -са́джаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Аддзяліць ад іншых, пасадзіць на іншае месца. *Адсадзілі свавольніка на заднюю парту.* **2.** *каго.* Аддзяліць ад маткі. *А. цяля.* **3.** *што.* Аддзяліўшы, пасадзіць у іншым месцы (расліну). *А. малады куст парэчак.* ‖ *незак.* **адса́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адса́джванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **адса́дачны**, -ая, -ае (да 3 знач.).

**АДСАЛЮТАВА́ЦЬ** *гл.* салютаваць.

**АДСАПЦІ́СЯ**, -сапу́ся, -сапе́шся, -сапе́цца; -сапёмся, -сапяце́ся, -сапу́цца; -со́пся, -сапла́ся, -ло́ся; -сапі́ся; *зак.* Аддыхацца, аднавіць раўнамернае дыханне. *А. пасля бегу.* ‖ *незак.* **адсо́пвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДСАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* Сартуючы, адабраць, аддзяліць. *А. насенне.* ‖ *незак.* **адсарто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДСВЕ́ЧВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* Даваць адсвет, адбіваць святло; адліваць колерам чаго-н; адбівацца. *Золатам адсвечвае лісце дрэў.*

**АДСВЯТКАВА́ЦЬ** *гл.* святкаваць.

**АДСЕ́ДЗЕЦЦА**, -се́джуся, -се́дзішся, -се́дзіцца; -се́дзеўся, -се́дзелася *і* **АДСЯДЗЕ́ЦЦА**, -сяджу́ся, -сядзі́шся, -сядзі́цца; -сядзі́мся, -седзіце́ся, -сядзя́цца; *зак.* (разм.). Ратуючыся ад каго-, чаго-н., схавацца дзе-н., перачакаць што-н.; ухіліцца ад працы, выканання свайго абавязку. *А. ў рэзерве.* ‖ *незак.* **адсе́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДСЕ́ДЗЕЦЬ**, -се́джу, -се́дзіш, -се́дзіць; -се́дзеў, -се́дзела *і* **АДСЯДЗЕ́ЦЬ**, -сяджу́, -сядзі́ш, -сядзі́ць; -сядзі́м, -седзіце́, -сядзя́ць; -сядзе́ў, -сядзе́ла; -се́джаны; *зак.* **1.** Адбываючы пакаранне, прабыць які-н. тэрмін у турме. *Ён сваё адсядзеў у астрозе. А. за растрату.* **2.** *што.* Седзячы ў нязручнай позе, давесці да здранцвення якую-н. частку цела. *А. нагу.* **3.** Прабыць дзе-н., праседзець некаторы час. *А. цэлую гадзіну ў прыёмнай.* ‖ *незак.* **адсе́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адсе́джванне**, -я, *н. і* **адсе́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 2 і 3 знач.; разм.).

**АДСЕ́ЙВАЦЦА** *гл.* адсеяцца.

**АДСЕ́ЙВАЦЬ** *гл.* адсеяць.

**АДСЕ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ізаляваная або аддзеленая ад іншых частка спецыяльнага памяшкання (на самалёце, караблі і пад.).

**АДСЕ́КЧЫ** *гл.* адсячы.

**АДСЕ́СЦІ**, -ся́ду, -ся́дзеш, -ся́дзе; -се́ў, -се́ла; -ся́дзь; *зак.* **1.** Перасесці далей ад каго-, чаго-н. *А. ад акна.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Аддзяліцца, адстаць (пра скарынку хлеба). ‖ *незак.* **адсяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДСЕ́Ў**, -се́ву, *м.* **1.** *гл.* адсеяцца, адсеяць. **2.** Тое, што адсеялася (у 1 знач.), тыя, хто адсеяўся (у 2 знач.). *Вялікі а. студэнтаў.*

**АДСЕ́ЧНЫ** *гл.* адсячы.

**АДСЕ́ЯЦЦА**, -се́юся, -се́ешся, -се́ецца; -се́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Аддзяліцца пры прасейванні. *Вотруб'е адсеялася ад мукі.* **2.** *перан.* Выбыць са складу чаго-н. *Частка студэнтаў адсеялася.* **3.** Скончыць сяўбу. *Адсеяліся калгасы рана.* ‖ *незак.* **адсе́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **адсява́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **адсе́йванне**, -я, *н.*, **адсява́нне**, -я, *н. і* **адсе́ў**, -се́ву, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**АДСЕ́ЯЦЬ**, -се́ю, -се́еш, -се́е; -се́й; -се́яны; *зак.* **1.** *што.* Прасейваннем аддзяліць. *А. асцюкі ад мукі.* **2.** *перан., каго-што.* Выключыць, звольніць. *А. двоечнікаў з універсітэта.* **3.** *што.* Перасеяць участак, дзе вымакла або не ўзышла збажына. *Адсеялі азіміну ярыной.* ‖ *незак.* **адсява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **адсе́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адсява́нне**, -я, *н.*, **адсе́йванне**, -я, *н. і* **адсе́ў**, -се́ву, *м.*

**АДСЁРБАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што і чаго* (разм.). Сёрбаючы, троху з'есці, адпіць чаго-н. вадкага. *А. з міскі булёну.* ‖ *незак.* **адсёрбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДСКАКА́ЦЬ**, -скачу́, -ска́чаш, -ска́ча; -скачы́; *зак.* **1.** Скончыць скакаць. *А. на аднойназе.* **2.** Выканаць танец; станцаваць. *Цэлы вечар адскакаў. А. казачка.* **3.** Праехаць на кані якую-н. адлегласць галопам. *Адскакаў на гнядым пяць кіламетраў.*

**АДСКО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак.* **1.** Скачком аддаліцца ад каго-, чаго-н. *А. ад дзвярэй.* **2.** Стукнуўшыся аб што-н., адляцець. *Мячык адскочыў ад сцяны.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Адбіцца, адляцець, адламацца (разм.). *Адскочыла ручка ў збане.* **4.** Адлучыцца на кароткі час (разм.). *А. у магазін на хвілінку.* ‖ *незак.* **адско́кваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1, 2 і 4 знач.) *і* **адска́кваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1, 2 і 4 знач.). ‖ *наз.* **адско́кванне**, -я, *н.* (да 1, 2 і 4 знач.), **адска́кванне**, -я, *н.* (да 1, 2 і 4 знач.) *і* **адско́к**, -у, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**АДСКРЭ́БЦІ**, -рабу́, -рабе́ш, -рабе́; -рабём, -рабяце́, -рабу́ць; -рэ́б, -рэ́бла; -рабі́; -рэ́бены; *зак., што* (разм.). Скрабучы, зняць што-н. з паверхні; саскрэбці, абчысціць. *А. фарбу.* ‖ *незак.* **адскраба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **адскрэ́бваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДСКУБНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., што і чаго.* **1.** Скубануўшы, аддзяліць, адарваць. *А. кудзелі.* **2.** *перан.* Уварваць, здабыць што-н. для сваёй асабістай карысці несумленным шляхам.

**АДСЛАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ло́іцца; *зак.* Аддзяліцца слоем. ‖ *незак.* **адсло́йвацца**, -аецца; *наз.* **адсло́йванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **адслае́нне**, -я, *н.*

**АДСЛАІ́ЦЬ**, -лаю́, -ло́іш, -ло́іць; -ло́ены; *зак., што.* Аддзяліць слаямі; прымусіць асесці. *А. кару.* ‖ *незак.* **адсло́йваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **адсло́йванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **адслае́нне**, -я, *н.*

**АДСЛУЖЫ́ЦЬ**, -лужу́, -лу́жыш, -лу́жыць; -лу́жаны; *зак.* **1.** Прабыць на службе, папрацаваць нейкі час. *А. дваццаць гадоў у лясніцтве.* **2.** Адбыць тэрмін вайсковай службы; скончыць служыць. *А. два гады ў арміі.* **3.** Службай адплаціць, адрабіць за што-н. *А. за шкоду.* **4.** Зрабіцца непрыгодным, перастаць адпавядаць свайму прызначэнню. **5.** Адправіць набажэнства. *А. імшу.* ‖ *незак.* **адслу́жваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.).

**АДСМАКТА́ЦЬ**, -макчу́, -мо́кчаш, -мо́кча; -макчы́; -макта́ны; *зак.* **1.** *што і чаго.* Смактаннем адпіць, убавіць, аддзяліць. *П'яўкі адсмакталі кроў.* **2.** Скончыць смактаць. ‖ *незак.* **адсмо́ктваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **адсмо́ктванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **адсмо́ктвальны**, -ая, -ае.

**АДСО́ПВАЦЦА** *гл.* адсапціся.

**АДСО́ЎВАЦЦА** *гл.* адсунуцца.

**АДСО́ЎВАЦЬ** *гл.* адсунуць.

**АДСО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна адсунуць; прыстасаваны для адсоўвання. *Адсоўная засаўка.*

**АДСО́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -со́хне; -со́х, -хла; *зак.* **1.** Пра часткі раслін: засохшы, адпасці. *Галінка адсохла.* **2.** Пра частку цела: страціць здольнасць рухацца, дзейнічаць з прычыны хваробы (разм.). *Рука адсохла.* ◊ **Каб табе язык адсох** — праклён таму, хто нядобра сказаў. ‖ *незак.* **адсыха́ць**, -а́е.

**АДСПЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што і без дап.* Скончыць спяваць. *Адспявалі свае песні салаўі.*

**АДСТАВА́ЦЬ** *гл.* адстаць.

**АДСТА́ВІЦЬ**, -та́ўлю, -та́віш, -та́віць; -та́ўлены; *зак.* **1.** *што.* Паставіць на новае месца, пераставіць. *А. крэсла ўбок.* **2.** *што.* Адвесці ўбок, выставіць. *А. нагу.* **3.** *каго-што.* Звольніць, зняць; вызваліць ад выканання якіх-н. абавязкаў; пазбавіць магчымасці займацца якой-н. справай (уст.). *А. ад выканання абавязкаў.* **4.** *што і без дап.* **Адста́віць!** Каманда, якая азначае адмену папярэдняй каманды або загад спыніць што-н. *А. размовы ў страі!* ‖ *незак.* **адстаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 1—3 знач.).

**АДСТА́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адстаў ад іншых у дарозе. *Адсталая птушка.* **2.** *перан.* Які стаіць на больш нізкім узроўні развіцця параўнальна з іншымі. *А. чалавек. Адсталая краіна. Адсталыя погляды.* ‖ *наз.* **адста́ласць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**АДСТА́ЎКА**, -і, *ДМ* -та́ўцы, *ж.* Канчатковае звальненне з вайсковай, а таксама з дзяржаўнай службы. *Капітан у адстаўцы. Выйсці ў адстаўку.* ◊ **Адстаўка кабінета,**

**урада** — выхад у сувязі з вотумам недавер'я або зменай кіраўніка дзяржавы.

**АДСТАЎНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Адстаўны ваеннаслужачы.

**АДСТАЎНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які знаходзіцца ў адстаўцы. *А. маёр.* **2.** *разм.* Якога адхілілі. *А. кавалер.* ◊ **Адстаўной казы барабаншчык** (разм., іран.) — чалавек, з якім ніхто не лічыцца.

**АДСТА́ЦЬ**, -та́ну, -та́неш, -та́не; -та́нь; *зак.* **1.** *ад каго-чаго.* Рухаючыся марудней за іншых або затрымаўшыся, застацца ззаду. *Трэба было бегчы, каб не а. ад кампаніі.* **2.** *ад чаго.* Спазніцца куды-н. (выйшаўшы ў дарозе з цягніка, машыны і пад.), застацца на месцы, не паспець вярнуцца, не паехаць. *А. ад цягніка.* **3.** *перан.* Не дасягнуць неабходнага ўзроўню ў чым-н., апынуцца ззаду іншых, робячы што-н. або развіваючыся больш марудна ў параўнанні з іншымі. *А. у вучобе. А. у выкананні плана.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра гадзіннік: паказаць больш ранні час, чым у сапраўднасці. *Гадзіннік адстаў на дзесяць мінут.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Аддзяліцца, адваліцца. *Шпалеры адсталі.* **6.** *ад каго.* Перастаць дакучаць (разм.). *Адстаньце ад мяне!* ‖ *незак.* **адстава́ць**, -таю́, -тае́ш, -тае́; -таём, -таяце́, -таю́ць. ‖ *наз.* **адстава́нне**, -я, *н.* (да 1—5 знач.).

**АДСТА́ЯЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -то́іцца; *зак.* **1.** Пра вадкасць: пастаяўшы, даць асадак. **2.** *перан.* Канчаткова сфарміравацца (пра думкі, погляды). *Думка адстаялася, усё стала зразумелым.* ‖ *незак.* **адсто́йвацца**, -аецца (да 1 знач.).

**АДСТАЯ́ЦЬ**[1], -таю́, -таі́ш, -таі́ць; -таі́м, -таіце́, -тая́ць; -то́й; -то́ены; *зак., каго-што.* Абараніць ад нападу, ад замаху на што-н. *А. мір на зямлі. А. сваё права.* ‖ *незак.* **адсто́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адсто́йванне**, -я, *н.*

**АДСТАЯ́ЦЬ**[2], -таю́, -таі́ш, -таі́ць; -таі́м, -таіце́, -тая́ць; -то́й; *зак., што.* Прысутнічаючы дзе-н., прастаяць да канца. *А. на нагах увесь сеанс.* ‖ *незак.* **адсто́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДСТО́Й**, -ю, *м.* Асадак з вадкасці на дне пасудзіны.

**АДСТО́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Басейн або рэзервуар, у якім адстойваецца вадкасць.

**АДСТО́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для адстойвання, ачышчэння вадкасці. *А. бак.*

**АДСТРАЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́емся, -я́ецца; *зак.* **1.** *ад каго-чаго.* Адбіцца стральбой. *А. ад ваўкоў.* **2.** Скончыць стральбу (разм.). *Падраздзяленне адстралялася.* ‖ *незак.* **адстрэ́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДСТРО́ІЦЬ**, -ро́ю, -ро́іш, -ро́іць; -ро́ены; *зак., што.* Абладзіць, аздобіць; надаць які-н. пэўны выгляд (шляхам рамонту і пад.). *А. кватэру.* ‖ *незак.* **адстро́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДСТРЫГЧЫ**, -рыгу́, -рыжэ́ш, -рыжэ́; -рыжо́м, -рыжаце́, -рыгу́ць; -ры́г, -гла́; -рыжы́; -ры́жаны; *зак., што.* Адрэзаць нажніцамі. *А. валасы.* ‖ *незак.* **адстрыга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДСТРЭ́Л** *гл.* адстрэльваць.

**АДСТРЭ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што* (разм.). **1.** Адарваць куляй, снарадам. *А. палец.* **2.** *каго (што).* Забіць (звера) па асобым дазволе. *А. ланя.* ‖ *незак.* **адстрэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДСТРЭ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* адстрэліць. **2.** *каго-што.* Паляваць на каго-н. з прамысловай і інш. мэтай, забіваючы па дазволу і пад. (спец.). *А. дзікіх качак.* ‖ *наз.* **адстрэ́л**, -у, *м.* (да 2 знач.). *А. ваўкоў.*

**АДСТУ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). **1.** Перадаць, выканаць, зрабіць, стукаючы па чым-н. *А. такт. Гадзіннік адстукаў 12 гадзін.* **2.** Стукаючы, пашкодзіць. *А. сабе ўсе пальцы.* ‖ *незак.* **адсту́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДСТУПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які носіць характар адступлення, звязаны з адступленнем. *А. манеўр.*

**АДСТУПІ́ЦЦА**, -туплю́ся, -ту́пішся, -ту́піцца; *зак., ад каго-чаго* (разм.). **1.** Ступіўшы адзін або некалькі крокаў назад, убок, аддаліцца ад каго-, чаго-н.; адступіць. *А. некалькі крокаў ад брамы.* **2.** Саступіўшы ўбок, перастаць засланяць дарогу, святло. *Адступіся ад акна.* **3.** *перан.* Адмовіцца ад чаго-н., перастаць адстойваць што-н. *А. ад сваіх намераў.* **4.** *перан.* Перастаць мець зносіны з кім-н., адвярнуцца ад каго-н.; адкаснуцца, адчапіцца. *Усе адступіліся ад яго. Адступіся ты ўжо!* **5.** Адысці, аддаліцца ад першакрыніцы, ісціны і пад. *Не а. ад праўды ні на крок.* ‖ *незак.* **адступа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АДСТУПІ́ЦЬ**, -туплю́, -ту́піш, -ту́піць; *зак.* **1.** Адысці, аддаліцца ад каго-, чаго-н. *А. улева на два крокі.* **2.** Адысці назад пад націскам праціўніка. *Адступілі з баямі. А. перад цяжкасцямі* (перан.). **3.** *ад каго.* Перанесці ўвагу з асноўнага на другараднае. *Аўтар адступіў ад тэмы.* **4.** *ад чаго.* Перастаць прытрымлівацца чаго-н. *А. ад старых звычаяў.* **5.** *ад чаго.* Зрабіць водступ на паперы, пішучы ці друкуючы што-н. *А. ад краю.* **6.** *ад чаго* і *без дап.* Адмовіцца ад свайго намеру, сваіх планаў. *Ён не а. ад свайго.* **7.** Паменшыцца; адлегчы; спасці (разм.). *Мароз адступіў. Хвароба адступіла* (перан.). ‖ *незак.* **адступа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **адступле́нне**, -я, *н.* (да 2—4 знач.).

**АДСТУПЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* адступіць. **2.** Адхіленне ад асноўнай тэмы; устаўка ў тэкст якога-н. літаратурнага твора, не звязаная з яго асноўнай тэмай або сюжэтнай лініяй. *Лірычнае а. ў літаратурным творы.*

**АДСТУ́ПНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які адступіўся, адрокся ад ранейшых перакананняў. ‖ *ж.* **адсту́пніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **адсту́пніцкі**, -ая, -ае.

**АДСТУ́ПНІЦТВА**, -а, *н.* Паводзіны, спосаб дзеяння адступніка; здрада ранейшым поглядам.

**АДСТУПНЫ́**, -а́я, -о́е (уст.). Які даецца каму-н. за згоду адмовіцца, адступіцца ад каго-, чаго-н. *Адступныя грошы. Сто тысяч рублёў адступнога* (наз.).

**АДСУ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Сунучыся, перамясціцца на невялікую адлегласць; аддаліцца. *А. ад акна.* **2.** *перан.* Стаць менш значным, менш важным. **3.** Адчыніцца, раскрыцца, адхінуцца. ‖ *незак.* **адсо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДСУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -су́нь; -нуты; *зак., каго-што.* **1.** Сунучы, перамясціць на невялікую адлегласць. *А. стол ад акна.* **2.** Адчыняючы што-н., адвесці ўбок. *А. засаўку.* **3.** Зрабіць менш важным, менш значным. *Будзённае жыццё адсунула на задні план мары.* **4.** *перан.* Вылучыцца, дасягнуць значных поспехаў, апярэдзіўшы іншых. ‖ *незак.* **адсо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДСУПО́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што.* Развязаць супоню, распрагаючы каня; рассупоніць. ‖ *незак.* **адсупо́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДСУ́ТНАСЦЬ**, -і, *ж.* Стан паводле знач. дзеяслова адсутнічаць. *А. дапамогі.*

**АДСУ́ТНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Не быць на месцы, не прысутнічаць дзе-н. у пэўны час. *На занятках адсутнічала частка слухачоў.*

**АДСУ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адсутнічае. *Запісаць адсутных* (наз.). **2.** Які не выяўляе ніякай цікавасці да навакольнага, абыякавы, пасіўны. *А. позірк.*

**АДСЦЯБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -ба́ны *і* **АДСЦЁБАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -цёбаны; *зак., каго-што.* Набіць, сцябаючы; адлупцаваць, адхвастаць. *А. лазінай.*

**АДСЫЛА́ННЕ** *гл.* адаслаць.

**АДСЫЛА́ЦЬ** *гл.* адаслаць.

**АДСЫЛА́ЧНЫ** *гл.* адаслаць.

**АДСЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** *гл.* адаслаць. **2.** Месца ў тэксце, якое адсылае за даведкай да другой часткі тэксту. *Сістэма адсылак у слоўніку.*

**АДСЫПА́ЦЦА** *гл.* адаспацца.

**АДСЫ́ПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; -сып; -паны; *зак., што* і *чаго.* Аддзяліць частку якога-н. сыпкага рэчыва або дробных прадметаў, насыпаўшы, высыпаўшы куды-н. *А. мукі.* ‖ *незак.* **адсыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **адсыпа́нне**, -я, *н. і* **адсы́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.*

**АДСЫРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў сырым, вільготным.

**АДСЫРЭ́ЦЬ** *гл.* сырэць.

**АДСЫХА́ЦЬ** *гл.* адсохнуць.

**АДСЮ́ЛЬ**, *прысл.* **1.** З гэтага або ад гэтага месца. *А. да горада далёка.* **2.** З гэтай мясцовасці. *Ён недзе а., з-пад Мінска.* **3.** *перан.* Са сказанага перад гэтым; у выніку гэтага. *А. зрабі вывад.*

**АДСЯВА́ННЕ** *гл.* адсеяцца, адсеяць.

**АДСЯВА́ЦЦА** *гл.* адсеяцца.

**АДСЯВА́ЦЬ** *гл.* адсеяць.

**АДСЯДА́ЦЬ** *гл.* адсесці.

**АДСЯДЗЕ́ЦЦА** *гл.* адседзецца.

**АДСЯДЗЕ́ЦЬ** *гл.* адседзець.

**АДСЯЛІ́ЦЬ**, -сялю́, -се́ліш, -се́ліць; -се́лены; *зак., каго-што.* Аддзяліць, пасяліўшы на іншае месца. *А. сына ў новую хату.* ‖ *незак.* **адсяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *звар.* **адсялі́цца**, -сялю́ся, -се́лішся, -се́ліцца; *незак.* **адсяля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **адсяле́нне**, -я, *н.*

**АДСЯЧЫ́** *і* **АДСЕ́КЧЫ**, -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы́; -се́чаны; *зак.* **1.** *што.* Аддзяліць, ударыўшы чым-н. вострым. *А. сухую галіну.* **2.** *перан., каго-што.* Рашуча пазбавіцца чаго-н., парваць сувязь з кім-, чым-н. *А. ранейшыя прывычкі.* **3.** Сказаць, адказаць у рэзкай, катэгарычнай форме. *Не сказаў, а адсек: не буду!* ‖ *незак.* **адсяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **адсяка́нне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **адсячэ́нне**, -я, *н. А. артылерыйскі агонь.* ◊ **Даць галаву на адсячэнне** — запэўніць у праўдзівасці чаго-н. (разм.).‖ *прым.* **адсе́чны**, -ая, -ае (спец.).

**АДТАВА́ЦЬ** *гл.* адтаць.

**АДТА́ЙВАЦЬ** *гл.* адтаяць.

**АДТА́ЛЫ**, -ая, -ае. Які адтаў пад уздзеяннем цяпла. *Адталая зямля.*

**АДТАНЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак.* **1.** *што.* Станцаваць. *А. польку.* **2.** Перастаць, скончыць танцаваць.

**АДТАПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -то́піцца; *зак.* Згарнуцца, аддзяліўшыся ад сыроваткі, ператварыцца ў тварог. *Малако адтапілася.* ‖ *незак.* **адто́пліващца**, -аецца *і* **адтапля́цца**, -я́ецца.

**АДТАПІ́ЦЬ**, -таплю́, -то́піш, -то́піць; -то́плены; *зак., што.* **1.** Падаграваючы, прымусіць аддзяліцца, стварожыцца. *А. кіслае малако.* **2.** Расплавіўшы, ператварыўшы ў вадкі стан, аддзяліць адно рэчыва ад другога. *А. усе прымесі з сала.* ‖ *незак.* **адто́пліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **адтапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АДТАПТА́ЦЬ**, -тапчу́, -то́пчаш, -то́пча; -тапчы́; -тапта́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Пашкодзіць што-н., наступаючы нагою. *А. нагу.* **2.** Натрудзіць, пашкодзіць доўгаю хадою. *А. ногі ў далёкай дарозе.* **3.** Прайсці вялікую адлегласць пехатой. *А. сотні вёрст.* ‖ *незак.* **адто́птваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДТАПЫ́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -рыцца; *зак.* (разм.). Вытыркнуцца, выпнуцца, высунуцца. *Адтапырыліся кішэні.* ‖ *незак.* **адтапы́рвацца**, -аецца.

**АДТАПЫ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* (разм.). Адставіць, выпнуць, высунуць уперад. *А. крысы.* ‖ *незак.* **адтапы́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -та́не; *зак.* **1.** Пад дзеяннем цяпла вызваліцца ад лёду, снегу. *Зямля адтала.* **2.** *перан.* Памякчэць, падабрэць. *Сэрца адтала.* ‖ *незак.* **адтава́ць**, -тае́.

**АДТАЧЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -то́чыцца; *зак.* Стаць вострым, вастрэйшым пасля тачэння. *Сякера добра адтачылася.* ‖ *незак.* **адто́чвацца**, -аецца.

**АДТАЧЫ́ЦЬ**, -тачу́, -то́чыш, -то́чыць; -то́чаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць вострым. *А. нож.* **2.** *перан.* Удасканаліць майстэрства, зрабіць выразным. *А. пяро крытыка.* ‖ *незак.* **адто́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДТА́ЯЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́й; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і *адтаць. Замарожанае мяса адтаяла.* **2.** *што.* Вывесці з замарожанага стану, размарозіць. *А. мёрзлыя яблыкі. А. халадзільнік.* ‖ *незак.* **адта́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДТО́К** *гл.* адцячы.

**АДТРАПА́ЦЬ**, -раплю́, -рэ́плеш, -рэ́пле; -рапі́; -рапа́ны; *зак.* **1.** *што.* Трэплючы, ачысціць ад кастрыцы. *А. лён.* **2.** *што* і *без дап.* Скончыць трапанне. **3.** *што.* Прайсці пехатою (разм.). *А. дзесяць кіламетраў.* ‖ *незак.* **адтрэ́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДТРУБІ́ЦЬ**, -рублю́, -ру́біш, -ру́біць; *зак., што.* Пратрубіць што-н., скончыць трубіць. *А. збор. Адтрубілі горны.*

**АДТРЭ́СЦІ**, -расу́, -расе́ш, -расе́; -расём, -расяце́, -расу́ць; -ро́с, -рэ́сла; -расі́; -рэ́сены; *зак., што.* **1.** Трасучы, аддзяліць што-н. *А. пыл з вопраткі.* **2.** Пашкодзіць трасеннем (разм.). *Адтрасеш нутро на такой дарозе.* ‖ *незак.* **адтраса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **адтрэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДТУ́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Дзірка, шчыліна, праход у чым-н. *А. ў сцяне.*

**АДТУ́ЛЬ**, *прысл.* З таго месца, з таго боку. *А. вее ледзяны вецер.*

**АДТЫКА́ННЕ** *гл.* адаткнуць.

**АДТЫКА́ЦЬ** *гл.* адаткнуць.

**АДТЫНКАВА́ЦЬ** *гл.* тынкаваць.

**АДТЭРМІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* **1.** Перанесці выкананне чаго-н. на больш позні тэрмін. *А. плацяжы.* **2.** Прадоўжыць тэрмін годнасці чаго-н. *А. камандзіроўку.* ‖ *незак.* **адтэрміно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адтэрміно́ўка**, -і, *ДМ* -но́ўцы, *мн.* -і, -но́вак, *ж.*

**АДУБЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які адубеў, змёрз, загінуў. **2.** Які стаў нягнуткім ад холаду; скарчанелы. *Адубелыя рукі.* **3.** Каляны, цвёрды ад вады, марозу. *А. плашч.* ‖ *наз.* **адубе́ласць**, -і, *ж.*

**АДУБЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). **1.** Змерзнуць на холадзе. *Адубеў на марозе.* **2.** Стаць нягнуткім, страціць адчувальнасць, здольнасць рухацца. *Рукі адубелі.* **3.** Памерці. *Можна а. у дарозе.*

**АДУБЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *адубелы. Адубянелая вопратка.* ‖ *наз.* **адубяне́ласць**, -і, *ж.*

**АДУБЯНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Тое, што і *адубець. А. на холадзе.*

**АДУВА́НЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Расліна сямейства складанакветных з малочным сокам, жоўтымі кветкамі і пушыстым насеннем, якое разносіцца ветрам; дзьмухавец. *Раслі каля дарогі адуванчыкі.*

**АДУ́ЖАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -ай; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Тое, што і *асіліць. А. ворага. А. хваробу.* ‖ *незак.* **аду́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДУЖЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў дужэйшым; які папраўіўся пасля хваробы.

**АДУЖЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; -жэ́й; *зак.* (разм.). **1.** Набрацца сілы, ачуняць пасля хваробы. **2.** *перан.* Пабагацець. *Змянілася, адужэла вёска.*

**АДУКАВА́НЫ**, -ая, -ае. Які мае адукацыю, align розныя веды; культурны, выхаваны. *А. чалавек.* ‖ *наз.* **адукава́насць**, -і, *ж.*

**АДУКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., каго (што).* Даць каму-н. адукацыю, навучыць, выхаваць. *А. дзяцей.* ‖ *незак.* **адуко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адуко́ўванне**, -я, *н.*

**АДУКАЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які спрыяе адукацыі, мае дачыненне да адукацыі, асветы. *А. ўзровень. Адукацыйная экскурсія.*

**АДУКА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Навучанне, асвета. *Права на адукацыю.* **2.** Сукупнасць ведаў, набытых у выніку навучання. *Сярэдняя а. Вышэйшая а.*

**АДУ́М** (разм.), -у, *м.* У выразе: **сваім адумам** — як самому ўяўляецца. *Ты ўсё сваім адумам робіш.*

**АДУ́МАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Падумаўшы, змяніць намеры, зразумеўшы іх памылковасць. *Адумаўся я і зрабіў інакш.* **2.** Апамятацца, сабрацца з думкамі; усвядоміць што-н. *Адумаўся хлопчык і расказаў пра ўсё, што адбылося.* ‖ *незак.* **аду́мвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДУРМА́НІЦЦА** *гл.* дурманіць.

**АДУРМА́НІЦЬ** *гл.* дурманіць.

**АДУРНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *адурэлы.*

**АДУРНЕ́ЦЬ** *гл.* дурнець.

**АДУРЫ́ЦЬ**, адуру́, аду́рыш, аду́рыць; *зак.* У выразе: **адурыць галаву** (разм.) — надакучыць гаворкай, просьбамі, прапановамі і пад.; уговорамі прымусіць што-н. зрабіць.

**АДУРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які дайшоў да адурэння, які выражае адурэнне. *А. чалавек. А. позірк.* ‖ *наз.* **адурэ́ласць**, -і, *ж.*

**АДУРЭ́ННЕ**, -я, *н.* (разм.). Стан паводле знач. дзеяслова адурэць. *Дайсці да поўнага адурэння.*

**АДУРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* **1.** Страціць здольнасць усведамляць што-н. *А. ад нeратамлення.* **2.** Прыйсці ў адурэлы стан ад розных пахаў. *Адурэла галава ад чаромхі.* ‖ *незак.* **дурэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е.

**АДУСЮ́ЛЬ**, *прысл.* З розных месц, з усіх бакоў. *А. чуліся вясёлыя галасы.*

**АДУТЛАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *азызлы. А. твар.* ‖ *наз.* **адутлава́тасць**, -і, *ж.*

**АДУХАВІ́ЦЬ**, -хаўлю́, -хаві́ш, -хаві́ць; -хаві́м, -хавіце́, -хавя́ць; -хо́ўлены; *зак., каго-што.* **1.** Духоўна ўзвысіць, авысакародзіць, натхніць (кніжн.). *А. высокімі ідэаламі.* **2.** Прыпісаць (прыродзе, жывёлінам) вышэйшыя духоўныя здольнас-

ці. ‖ *незак.* **адухаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **адухаўле́нне**, -я, *н. А. прыроды.*

**АДУХО́ЎЛЕНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Пранікнуты ўзвышаным пачуццём; які выяўляе характво, высакароднасць душы, актыўную інтэлектуальную работу. *А. твар чалавека.* ‖ *наз.* **адухо́ўленасць**, -і, *ж.*

**АДУШАВІ́ЦЬ**, -шаўлю́, -шаві́ш, -шаві́ць; -шаві́м, -шавіце́, -шавя́ць; -шаўлёны; *зак., што.* Надзяліць уласцівасцямі жывых істот. ‖ *незак.* **адушаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **адушаўле́нне**, -я, *н.*

**АДУШАЎЛЁНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які належыць да свету жывых істот; жывы (кніжн.). **2.** У граматыцы: які адносіцца да катэгорыі назваў жывых істот. *А. назоўнік.* ‖ *наз.* **адушаўлёнасць**, -і, *ж.*

**АДФАРМАВА́ЦЬ** *гл.* фармаваць.

**АДФІЛЬТРАВА́ЦЬ** *гл.* фільтраваць.

**АДФРЭЗЕРАВА́ЦЬ** *гл.* фрэзераваць.

**АДФУТБО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *зак., каго-што* (разм., перан.). Пазбавіцца ад каго-, чаго-н., перадаўшы ці пераслаўшы каму-н. другому. *А. скаргу другому.* ‖ *незак.* **адфутбо́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДХАДЗІ́ЦЬ**[1], -хаджу́, -хо́дзіш, -хо́дзіць; -хо́джаны; *зак., каго-што* (разм.). Вылечыць, выратаваць ад смерці пільным доглядам і клопатамі. *А. хворага.* ‖ *незак.* **адхо́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДХАДЗІ́ЦЬ**[2], -хаджу́, -хо́дзіш, -хо́дзіць; -хо́джаны; *зак.* (разм.). **1.** Скончыць, перастаць хадзіць. **2.** *што.* Прахадзіць куды-н., дзе-н. пэўны час. **3.** *што.* Стаміць, пашкодзіць што-н. хадзьбой. *А. ногі.* **4.** *каго-што.* Адлупцаваць, набіць. *А. дзягай.* ‖ *незак.* **адхо́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДХАПІ́ЦЬ**, -хаплю́, -хо́піш, -хо́піць; -хо́плены; *зак.* **1.** *што.* Паспешліва адняць. *А. руку ад агню.* **2.** *каго-што.* Набыць, дастаць (пра што-н. добрае; разм.). *А. добры гарнітур.* **3.** *што.* Атрымаць, зарабіць (разм.). *А. вымову. А. двойку.* **4.** *што.* З сілай адарваць, адрэзаць, адкусіць (разм.). *А. сякерай галіну.* ‖ *незак.* **адхо́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДХА́РКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Харкаючы, ачысціць горла ад макроты, слізі. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Аддзяліцца пры харканні. *Уся макрота адхаркалася.* ‖ *незак.* **адха́рквацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДХА́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Пахаркаўшы, сплюнуць макроту, слізь. ‖ *незак.* **адха́рькваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адха́ркванне**, -я, *н.*

**АДХА́РКВАЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які выклікае адхарkванне, спрыяе адхаркванню. *Адхарквальная мікстура.*

**АДХА́РКНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* **1.** Харкнуўшы, ачысціць горла ад макроты, слізі. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Аддзяліцца пры адхаркванні. *Макрота адхаркнулася.* ‖ *незак.* **адха́рквацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДХА́РКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* Харкнуўшы, сплюнуць.

**АДХА́ЯЦЬ**, -ха́ю, -ха́еш, -ха́е; -ха́й; -ха́яны; *зак., каго-што.* **1.** Вярнуць прытомнасць; адратаваць (разм.). *А. хворага.* **2.** Ачысціць, адмыць, агледзець. ‖ *незак.* **адха́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адха́йванне**, -я, *н.*

**АДХВАСТА́ЦЬ**, -хвашчу́, -хво́шчаш, -хво́шча; -хвашчы́; -хваста́ны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Адсцябаць чым-н. гібкім; адлупцаваць. **2.** *перан.* Бязлітасна, рэзка пакрытыкаваць, вылаяць.

**АДХІЛІ́ЦЦА**, -хілю́ся, -хі́лішся, -хі́ліцца; *зак.* **1.** Падацца ўбок, адвярнуцца. *Адхілілася кабета і выцерла заплаканыя вочы.* **2.** Адысці ад прамога маршруту, збіцца. *А. ўбок і заблудзіцца.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Адгарнуцца, адсланіцца. *Заслона адхілілася.* **4.** *перан.* Перакінуць увагу на што-н. іншае. *Важна, каб не а. ад галоўнага.* ‖ *незак.* **адхіля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **адхіле́нне**, -я, *н. А. ад нормы.*

**АДХІЛІ́ЦЬ**, -хілю́, -хі́ліш, -хі́ліць; -хі́лены; *зак.* **1.** *каго-што.* Адвесці ўбок, адвярнуць. *А. галаву.* **2.** *што.* Адхінуць, адгарнуць. *А. коўдру.* **3.** *перан., каго-што.* Не прыняць, адвергнуць; не дапусціць. *А. кандыдатуру.* ‖ *незак.* **адхіля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **адхіле́нне**, -я, *н.*

**АДХІНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Адсланіцца, адхіліцца (пра тое, што захінае). *Фіранка адхінулася.* **2.** Падацца ўбок, адступіцца. *А. ад акна.* **3.** *перан.* Адмовіцца ад каго-, чаго-н., адступіцца. *А. ад свайго таварыша.* **4.** *перан.* Адлучыцца, адысці на кароткі час. *А. на хвілінку.* ‖ *незак.* **адхіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АДХІНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што.* **1.** Адсланіць, адхіліць (тое, чым захінута што-н.). *А. фіранку. А. заслону.* **2.** Адхіліць, адвесці ўбок. *А. галаву.* ‖ *незак.* **адхіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **адхіна́нне**, -я, *н.*

**АДХІСНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся; -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Адхіліцца, рэзка падацца ўбок. *А. ад дзвярэй.* **2.** *перан.* Адмовіцца, адступіцца, адвярнуцца ад каго-, чаго-н. *Сябры адхіснуліся ад яго.* ‖ *незак.* **адхі́censóвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДХЛЫ́НУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; *зак.* Хлынуўшы, адысці, адступіць. *Вада адхлынула назад. Натоўп адхлынуў.*

**АДХО́ДЖВАЦЬ**[1] *гл.* адхадзіць[1].

**АДХО́ДЖВАЦЬ**[2] *гл.* адхадзіць[2].

**АДХО́ДЛІВАСЦЬ** *гл.* адыходлівы.

**АДХО́ДЛІВЫ** *гл.* адыходлівы.

**АДХО́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пахілая паверхня гары і пад., схіл. **2.** Бакавая паверхня дарожнага палатна. *Пусціць цягнік пад а.*

**АДХО́ННЫ**, -ая, -ае. Не круты, спадзісты, пахілы. *А. спуск.*

**АДХО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* адхапіць.

**АДХРЫСЦІ́ЦЦА**, -рышчу́ся, -ры́сцішся, -ры́сціцца; *зак., ад каго-чаго* (разм.). Адмовіцца, ухіліцца ад каго-, чаго-н.; адчапіцца, адгаварыцца, адвязацца. *Неяк удалося а. ад паездкі.* ‖ *незак.* **адхры́шчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДХУ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Адагрэць дыханнем. *А. рукі.* **2.** *перан.* Выратаваць, вярнуць сілы (доглядам, увагай і пад.). *Ледзь адхукалі малога.* ‖ *незак.* **адху́кваць**, -аю, -аеш. -ае.

**АДЦАДЗІ́ЦЬ**, -цаджу́, -цэ́дзіш, -цэ́дзіць; -цэ́джаны; *зак., што.* Цэдзячы, адліць; аддзяліць рэдкае, вадкасць ад гушчы і пад. *А. малако. А. бульбу.* ‖ *незак.* **адцэ́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЦВІСЦІ́**, -цвіту́, -цвіце́ш, -цвіце́; -цвіцём, -цвіцяце́, -цвіту́ць; -цвіў, -цвіла́, -ло́; -цвіці́; *зак.* **1.** Скончыць цвісці. *Адцвіла ў полі грэчка.* **2.** *перан.* Адкрасаваць (пра маладосць, жыццё). *Адцвіла маладосць.* ‖ *незак.* **адцвіта́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДЦЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Разнавіднасць аднаго і таго ж колеру (гуку і пад.). *А. ружовага колеру.* **2.** *перан.* Асаблівасць, якая ўяўляе сабою ледзь улоўны пераход ад аднаго да другога. *Розныя адценні ў значэнні слова.* **3.** *перан., чаго.* Дадатковая ўласцівасць чаго-н. *Прагучаў папрок з адценнем злосці.*

**АДЦЕ́РЦІ**, адатру́, адатрэ́ш, адатрэ́; адатро́м, адатрацэ́, адатру́ць; адцёр, -це́рла; адатры́; -цёрты; *зак.* **1.** *што.* Трэннем выдаліць што-н. прысохлае, прыклеенае і пад. *А. бруд з вопраткі.* **2.** *каго-што.* Расціраючы, вярнуць адчувальнасць каму-, чаму-н. *А. шчокі з марозу. А. ногі.* **3.** *каго-што.* Адціснуць, адцясніць; выцесніць (разм.). *А. саперніка.* **4.** *што.* Пашкодзіць, адцяць, прычыніўшы боль (разм.). *А. пальцы.* ‖ *незак.* **адціра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДЦЕ́РЦІСЯ**, адатру́ся, адатрэ́шся, адатрэ́цца; адатро́мся, адатрацё́ся, адатру́цца; адцёрся, -це́рлася; адатры́ся; *зак.* **1.** Знікнуць пасля сцірання, чысткі. *Фарба з вопраткі хутка адцерлася.* **2.** Праціскаючыся куды-н., быць адцёртым назад (разм.). *Чалавек з чамаданам адцёрся ад натоўпу.* ‖ *незак.* **адціра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АДЦІ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Абмежаваная частка чаго-н., што вымервае́цца ў прасторы; адрэзак. *А. лініі метро.*

**АДЦІНА́ЦЬ** *гл.* адцяць.

**АДЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *што.* Прыціснуўшы, пашкодзіць; аддзяліць, адрэзаць. *А. пальцы дзвярыма.* **2.** *што.* Сцісканнем аддзяліць вадкасць. *А. тварог.* **3.** *каго-што.* Адцясняючы, прымусіць адысці, адступіць. *А. натоўп назад.* **4.** *што.* Націснуўшы, зрабіць адбітак на чым.-н. *А. след.* **5.** *што.* Зрабіць адбітак тэксту, малюнка; аддрукаваць (спец.). *А. карэктуру.* ‖ *незак.* **адціска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДЦУРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., каго-чаго.* Адрачыся, парваць сувязь, адносіны з кім-, чым-н.; перастаць прызнаваць за ісціну што-н. роднае, бліз-

кае, сваё; пакінуць прызнаваць. *А. родных, блізкіх.*

**АДЦЫКЛЯВА́ЦЬ** *гл.* цыкляваць.

**АДЦЭНТРАВА́ЦЬ** *гл.* цэнтраваць.

**АДЦЯГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Доўга пранасіць абутак, адзенне. *Адцягаў кажух гадоў пяць.* **2.** Адцягнуць у некалькі заходаў. *Адцягалі за гадзіну сухое вецце.* || *незак.* **адця́гваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.).

**АДЦЯ́ГНЕНЫ**, -ая, -ае. Абстрактны. *Адцягненае паняцце. Адцягненае мысленне.* || *наз.* **адця́гненасць**, -і, *ж.*

**АДЦЯГНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ця́гнецца; *зак.* **1.** Пра войскі: адысці назад, убок. **2.** Стаць адвіслым ад якога-н. цяжару. *Кішэні адцягнуліся.* **3.** Адкласціся на пазнейшы час. *Размова адцягнулася. Ад'езд адцягнуўся.* || *незак.* **адця́гвацца**, -аецца.

**АДЦЯГНУ́ЦЬ**, -цягну́, -ця́гнеш, -ця́гне; -цягні́; -ця́гнуты *і* -ця́гнены; *зак.* **1.** *каго-што.* Перамясціць, цягнучы; адсунуць. *А. багаж убок.* **2.** *каго-што.* Адвесці, перавесці ў іншае месца. *А. войскі.* **3.** Пацягнуўшы, напяць; нацягнуць. *А. шнур.* **4.** *што.* Падоўжыць каваннем, зрабіць танчэйшым. *А. касу.* **5.** *што.* Зрабіць адвіслым. *А. кішэні.* **6.** *перан., што.* Адтэрмінаваць (разм.). *А. плацяжы.* **7.** *перан., што.* Адхіліць думкі, прымусіць забыцца пра што-н. *А. увагу ад галоўнага пытання.* ◊ **За вушы не адцягнеш** (разм., адабр.) — пра вельмі смачную ежу. || *незак.* **адця́гваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **адця́гванне**, -я, *н. і* **адця́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* (да 3, 4 і 6 знач.). || *прым.* **адцяжны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.; спец.) *і* **адця́жачны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**АДЦЯ́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* **1.** *гл.* адцягнуць. **2.** Рух, пры якім халодная зброя, бізун і пад. пры ўдары адцягваецца крыху назад (спец.). *Удар з адцяжкай.*

**АДЦЯНІ́ЦЬ**, -цяню́, -це́ніш, -це́ніць; -це́нены; *зак., што.* **1.** Выдзеліць, паклаўшы цень, зрабіўшы цямнейшым па тоне. *А. прадмет на малюнку.* **2.** *перан.* Падкрэсліць, зрабіць больш прыкметным, выразнейшым, ярчэйшым; узмацніць. *А. стройную постаць цёмным касцюмам.* || *незак.* **адцяня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АДЦЯСНІ́ЦЬ**, -цясню́, -цясні́ш, -цясні́ць; -цяснí́м, -цесніце́, -цясня́ць; -це́снены; *зак., каго-што* (перан.). Націскаючы, прымусіць адысці, адсунуцца. *А. праціўніка на другі бераг ракі. А. саперніка* || *незак.* **адцясня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АДЦЯ́ЦЬ**, адатну́, адатне́ш, адатне́; адатнём, адатняце́, адатну́ць; адатні́; адця́ты; *зак., што.* Адсячы, адрэзаць. *А. палец. Салдату адцяла* (безас.) *нагу.* || *незак.* **адціна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДЦЯЧЫ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цячэ́, -цяку́ць; -цёк, -цякла́, -ло́; *зак.* Сцячы, выцечы ў іншае месца. *Адцякла вада ў нізіну.* || *незак.* **адцяка́ць**, -а́е. || *наз.* **адто́к**, -у, *м.* (спец.). *А. крыві.*

**АДЧА́Й**, -ча́ю, *м.* **1.** Стан крайняй безнадзейнасці, роспач. *Плакаць у адчаі.* **2.** Рашучасць, адвага, вялікая рызыка, безразважная храбрасць. *Усе дзівіліся адчаю і смеласці воінаў.*

**АДЧА́ЙВАЦЦА** *гл.* адчаяцца.

**АДЧА́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Поўны адчаю; надзвычай цяжкі, роспачны, безвыходны. *А. крык. Адчайнае становішча.* **2.** Рашучы, адважны, рызыкоўны, дзёрзкі. *А. чалавек.* || *наз.* **адча́йнасць**, -і, *ж.*

**АДЧАКА́НІЦЬ** *гл.* чаканіць.

**АДЧАКА́НЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *чаканіць* (у 2 знач.). *А. словы. А. крокі.*

**АДЧА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* **1.** *што.* Адвязаць (прычал; спец.). *А. канат.* **2.** Адплысці ад берага. *Ад берага адчаліў паром.* **3.** *перан.* Адправіцца, паехаць куды-н. *Заўтра ж адчалю ў Мінск.* || *незак.* **адча́льваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **адча́льванне**, -я, *н.* (да 2 знач.) *і* **адча́л**, -у, *м.* (да 2 знач.).

**АДЧАПІ́ЦЦА**, -чаплю́ся, -чэ́пішся, -чэ́піцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Расчапіўшы, аддзяліцца ад чаго-н. *Адчапіўся вагон.* **2.** *перан.* Адысці, адстаць, адвязацца, перастаць дакучаць каму-н. (разм.). *Адчапіцеся вы ад дзіцяці!* **3.** *перан.* Пазбавіцца, вызваліцца ад каго-, чаго-н. дакучлівага, непрыемнага, ухіліцца ад выканання чаго-н. (разм.). || *незак.* **адчэ́пліваіцца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **адчапля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**АДЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю́, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак., што.* Расчэпліваючы, аддзяліць. *А. вагон.* || *незак.* **адчэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **адчапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **адчэ́пліванне**, -я, *н.*, **адчапле́нне**, -я, *н. і* **адчэ́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.*

**АДЧАПНЫ́**, -а́я, -о́е. Такі, які можа быць адчэплены. *Адчапныя вагоны.*

**АДЧАРАНКАВА́ЦЬ** *гл.* чаранкаваць.

**АДЧАРЦІ́ЦЬ**, -чарчу́, -чэ́рціш, -чэ́рціць; -чэ́рчаны; *зак., што.* **1.** Аддзяліць рысай; адкрэсліць. **2.** Скончыць чарціць. || *незак.* **адчэ́рчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЧА́ЯЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; -а́йся; *зак.* **1.** Паддацца адчаю, пасці духам, страціць надзею на што-н. *А. ў бядзе.* **2.** Адважыцца на што-н. смелае, рызыкоўнае. *А. на мужны ўчынак.* || *незак.* **адча́йвацца**, -ваюся, -ваешся, -ваецца.

**АДЧЛЯНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чле́ніцца; *зак.* Аддзяліцца, вылучыцца з цэлага (пра асобныя часткі, члены чаго-н.). || *незак.* **адчляня́цца**, -я́ецца.

**АДЧЛЯНІ́ЦЬ**, -чляню́, -чле́ніш, -чле́ніць; -чле́нены; *зак., што.* Аддзяліць, вылучыць з цэлага асобныя часткі чаго-н. || *незак.* **адчляня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **адчляне́нне**, -я, *н.*

**АДЧУВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адчуваецца, здольны выклікаць адчуванне. *А. подых ветру.* **2.** Моцны, значны. *А. ўдар па ворагу. Адчувальныя выдаткі.* || *наз.* **адчува́льнасць**, -і, *ж.*

**АДЧУВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Псіхічны працэс успрымання з'яў аб'ектыўнага свету пры іх уздзеянні на органы пачуццяў. *А. дотыку. А. новага.* **2.** Перажыванне, уражанне, прадчуванне; успрыманне свядомасцю, разуменне; пазнаванне. *Паэтычнае а. свету. А. рэчаіснасці.*

**АДЧУВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* (кніжн.). Быць у наяўнасці, мецца, перажывацца кім-н., адбівацца на кім-н. *Адчуваецца пахаладанне. Адчуваецца патрэба адпачыць.*

**АДЧУ́ЖАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Адасоблены, абыякавы да іншых. *Хлопец нейкі змрочны, а.* **2.** Які выражае адчужэнне. *А. позірк.* || *наз.* **адчу́жанасць**, -і, *ж.*

**АДЧУЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *што.* Перадаваць (маёмасць) у карысць другой асобы, дзяржавы або грамадскіх арганізацый (афіц.). **2.** *каго-што.* Аддаляць, адасабляць (кніжн.). *Эгаізм адчужае сяброў.* || *наз.* **адчужэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**АДЧУЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* адчужаць. **2.** Спыненне або адсутнасць блізкіх адносін паміж кім-н., аддаленне, адасабленне. *А. былых сяброў.*

**АДЧУ́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; -чу́ты; *зак., каго-што.* **1.** Пазнаць шляхам адчування. *А. холад. А. моцны боль у назе.* **2.** Зведаць, перажыць, зразумець. *А. несправядлівасць. А. сябе шчаслівым.* || *незак.* **адчува́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДЧЫНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чы́ніцца; *зак.* Стаць адчыненым. *Дзверы адчыніліся.* || *незак.* **адчыня́цца**, -я́ецца.

**АДЧЫНІ́ЦЬ**, -чыню́, -чы́ніш, -чы́ніць; -чы́нены; *зак., што.* Адводзячы, знімаючы або адстаўляючы ўбок тое, чым перакрыты ўваход ці выхад у якое-н. памяшканне (пасудзіну і пад.), зрабіць даступнай унутраную ці знешнюю прастору. *А. акно. А. кубел.* || *незак.* **адчыня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АДЧЫРКНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; адчы́ркнуты; *зак., што.* Адкрэсліць, адчарціць, пазначыць. *А. алоўкам цікавае месца ў кнізе.* || *незак.* **адчы́ркваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЧЫ́СЦІЦЦА**, -чы́шчуся, -чы́сцішся, -чы́сціцца; *зак.* Стаць чыстым або (пра бруд) знікнуць пасля чысткі. *А. ад пылу пасля дарогі. Пляма на рукаве адчысцілася.* || *незак.* **адчышча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АДЧЫ́СЦІЦЬ**, -чы́шчу, -чы́сціш, -чы́сціць; -чы́шчаны; *зак., што.* **1.** Чысцячы, зняць, вывесці. *А. пляму.* **2.** Вымыць, вычысціць што-н. *А. кацёл.* || *незак.* **адчышча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **адчы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**АДЧЫТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Паведаміць аб сваёй рабоце, дзейнасці. *А. перад камісіяй.* || *незак.* **адчы́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДЧЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Прачытаць што-н., скончыць чытаць. *А. курс літаратуры.* **2.** *каго (што).* Зрабіць каму-н. строгую заўвагу,

вымову за што-н., прабраць каго-н. *Строга а. за парушэнне дысцыпліны.* ‖ *незак.* **адчытваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.).

**АДЧЭПКА** *гл.* адчапіць.

**АДЧЭПЛІВАННЕ** *гл.* адчапіць.

**АДЧЭПЛІВАЦЦА** *гл.* адчапіцца.

**АДЧЭПЛІВАЦЬ** *гл.* адчапіць.

**АДЧЭПНАЕ** -ага, *н.* У выразе: **даць адчэпнага** (разм.) — даць што-н., каб адчапіліся.

**АДЧЭРПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* і *чаго.* Чэрпаючы, узяць, адбавіць чаго-н. *А. частку вады.* ‖ *незак.* **адчэрпваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЧЭРПНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што* і *чаго.* Чэрпаючы, адбавіць частку чаго-н. *А. вады з вядра.* ‖ *незак.* **адчэрпваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДЧЭРЧВАЦЬ** *гл.* адчарціць.

**АДШАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго-што.* Адчысціць, адцерці шараваннем. *А. каструлю.* ‖ *незак.* **адшаро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДШВАРТАВА́ЦЦА** *гл.* швартавацць.

**АДШВАРТАВА́ЦЬ** *гл.* швартаваць.

**АДШЛЁПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Надаваць плескачоў. *А. хлапчука.* **2.** Прайсці нейкую адлегласць па гразі. *А. дзесяць кіламетраў па бездаражы.*

**АДШЛІФАВА́ЦЬ** *гл.* шліфаваць.

**АДШМАРГАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -шмо́ргнуты; *зак., што.* Шмаргануўшы, адсунуць. *А. фіранку.* ‖ *незак.* **адшмо́ргваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДШПІЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -пі́ліцца; *зак.* **1.** Стаць непрышпіленым, адкалоцца. *Значок адшпіліўся.* **2.** Расшпіліцца, выпасці з пятлі. *Гузік адшпіліўся.* ‖ *незак.* **адшпі́львацца**, -аецца *і* **адшпіля́цца**, -я́ецца.

**АДШПІЛІ́ЦЬ**, -пілю́, -пі́ліш, -пі́ліць; -пі́лены; *зак., што.* **1.** Адкалоць што-н. прышпіленае. *А. бант.* **2.** Разняць часткі якой-н. зашпількі. *А. кнопку. А. папругу.* ‖ *незак.* **адшпі́льваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **адшпіля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АДШПУНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* Выбіць, вырваць шпунт; адкрыць. *А. бочку з квасам.* ‖ *незак.* **адшпунто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДШПУРНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што* (разм.). Шпурнуўшы, адкінуць. *А. камень.*

**АДШРУБАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -бу́ецца; *зак.* Адкруціцца, верцячыся па вінтавой нарэзцы. *Адшрубавалася гайка.* ‖ *незак.* **адшрубо́ўвацца**, -аецца.

**АДШРУБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* Адкруціць, верцячы па вінтавой нарэзцы (гайку). ‖ *незак.* **адшрубо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДШТАБНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* Прашыць строчкай; зрабіць шво. *А. каўнер.*

**АДШТАМПАВА́ЦЬ** *гл.* штампаваць.

**АДШТУКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Адмыслова зрабіць, вырабіць што-н., надаць чаму-н. закончаны выгляд. *А. сабе дом.* **2.** Аздобіць, размаляваць, упрыгожыць. *А. кватэру.*

**АДШТУРХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** *ад каго-чаго.* Упёршыся ў што-н., штуршком аддаліцца, адсунуцца, аддзяліцца ад чаго-н. *А. ад берага.* **2.** *перан., ад чаго.* Узяць што-н. за адпраўны, зыходны пункт (у разважаннях і пад.). *А. ад галоўнай думкі.* ‖ *незак.* **адшту́рхвацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **адштурхо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДШТУРХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* **1.** Штуршком аддаліць, адапхнуць каго-, што-н. **2.** *перан.* Сваёй няўважлівасцю, халоднасцю і пад. аддаліць ад сябе каго-н.; парваць сувязь, блізкія адносіны з кім-н. *Сваімі ўчынкамі а. знаёмых.* ‖ *незак.* **адшту́рхваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **адштурхо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДШУКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Знайсціся, выявіцца пасля пошукаў. *Прапажа адшукалася.* ‖ *незак.* **адшу́квацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АДШУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Знайсці, выявіць пасля пошукаў, намаганняў. *А. патрэбную рэч.* ‖ *незак.* **адшу́кваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **адшука́нне**, -я, *н. і* **адшу́кванне**, -я, *н.*

**АДШУМЕ́ЦЬ**, -млю́, -мі́ш, -мі́ць; -мі́м, -міце́, -мя́ць; -мі́; *зак.* **1.** Скончыць шумець. *Адшумелі дажджы.* **2.** *перан.* Прайсці, закончыцца (пра што-н. шумнае, гучнае). *Адшумела вайна.*

**АДШЧАПЕ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (неадабр.). Той, хто адкалоўся, адышоў ад калектыву, ад свайго грамадскага асяроддзя. ‖ *ж.* **адшчапе́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**АДШЧАПЕ́НСТВА**, -а, *н.* (неадабр.). Адкол, адыход ад калектыву, ад свайго грамадскага асяроддзя.

**АДШЧАПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чэ́піцца; *зак.* **1.** Аддзяліцца, адкалоцца. *Лучына адшчапілася.* **2.** Адкрыцца (пра кручок, зашчапку). **3.** Адшпіліцца (пра што-н. прышпіленае, зашпіленае). *Адшчапілася брошка.* ‖ *незак.* **адшчэ́плівацца**, -аецца *і* **адшчапля́цца**, -я́ецца.

**АДШЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю́, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак., што.* **1.** Аддзяліць, адкалоць. *А. трэску.* **2.** Адкінуць кручок, зашчапку; адчыніць, адкрыць. *А. кручок.* **3.** Адшпіліць, адняць прышчэпленае. *А. шпільку.* ‖ *незак.* **адшчэ́плiваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **адшчапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **адшчэ́пліванне**, -я, *н.*, **адшчапля́нне**, -я, *н. і* **адшчапле́нне**, -я, *н.*

**АДШЧЫПНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што* і *чаго.* Шчыпком аддзяліць, адарваць. *А. скарыначку хлеба. А. яблык.* ‖ *незак.* **адшчы́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АДШЫ́ЦЬ**, -шы́ю, -шы́еш, -шы́е; -шы́ты; *зак.* (разм.). **1.** *што* і *без дап.* Скончыць шыць. **2.** Адпрацаваць шыццём узамен за што-н. *А. за доўг.* **3.** *каго-што* (разм.). Адахвоціць, прымусіць спыніць заляцанні; пазбавіцца ад каго-н. *А. кавалера.* ‖ *незак.* **адшыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АДЫГЕ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -ге́ец, -ге́йца, *м.* Народ, які складае асноўнае карэннае насельніцтва Адыгеі, што ўваходзіць у Расійскую Федэрацыю. ‖ *ж.* **адыге́йка**, -і, *ДМ* -ге́йцы, *мн.* -і, -ге́ек. ‖ *прым.* **адыге́йскі**, -ая, -ае.

**АДЫГРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Выйграць пасля пройгрышу; адыграць (у 1 знач.). *Каманда хацела а.* **2.** *перан.* Умела выйсці з няёмкага становішча (разм.). *А. жартам.* **3.** Спагнаць злосць на кім-н. *Хацелі адыграцца на нас — але не ўдалося!* ‖ *незак.* **ады́грывацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **ады́грыш**, -у, *м.* (да 1 знач.).

**АДЫГРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Далейшай гульнёй вярнуць прайгранае. **2.** і *без дап.* Скончыць іграць. ◊ **Адыграць ролю** — аказаць уплыў, уздзеянне. ‖ *незак.* **ады́грываць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ады́грыш**, -у, *м.*

**АДЫ́ГРЫШ**, -у, *м.* (разм.). **1.** *гл.* адыграцца, адыграць. **2.** Што-н. адыгранае (грошы, рэчы і пад.).

**АДЫЁЗНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які выклікае да сябе крайне адмоўныя адносіны; непрыемны, адмоўны. *Адыёзная асоба.* ‖ *наз.* **адыёзнасць**, -і, *ж.*

**АДЫМА́ННЕ** *гл.* адняць.

**АДЫМА́ЦЦА** *гл.* адняцца.

**АДЫМА́ЦЬ** *гл.* адняць.

**АДЫМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. У мовазнаўстве: утвораны ад назоўніка або прыметніка. *А. дзеяслоў.*

**АДЫМЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *зак., каго-што* (разм.). Хутка адвезці або аднесці.

**АДЫСЦІ́**, адыду́, ады́дзеш, ады́дзе; адышо́ў, -шла́, -ло́; адыдзі́; *зак.* **1.** Пакінуць ранейшае месца; ідучы, аддаліцца ад каго-, чаго-н. *Ён адышоў ад вогнішча на ўзгорак.* **2.** *разм.* Пайсці, адправіцца куды-н. *Дзеці адышлі ў майстэрню.* **3.** Перамясціцца, аддаліцца (пра падзеі, з'явы прыроды і пад.). *Ваенная хваля адышла на захад.* **4.** *перан.* Падняцца ў якіх-н. адносінах на вышэйшую ступень. *Сын не далёка адышоў ад бацькі.* **5.** Пакінуць свае ранейшыя пазіцыі; адступіць. *Казакі зняліся з пазіцыі і адышлі за Нёман.* **6.** *перан.* Перастаць займацца якой-н. справай, пакінуць ранейшы занятак; адхіліцца ад ранейшага кірунку ў рабоце, гутарцы, разважаннях і пад.; парваць сувязь з кім-, чым-н.; зрабіцца далёкім, чужым для каго-, чаго-н. *А. ад тэмы размовы. А. ад літаратуры. А. ад спраў.* **7.** Адстаць, аддзяліцца, перастаць шчыльна прылягаць да чаго-н. *За-*

**АКТЫВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто належыць да актыву[1], дзейны член якога-н. калектыву. || *ж.* **актывí́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **актывíсцкі**, -ая, -ае.

**АКТЫ́Ў**[1], -ы́ву, *м.* Найбольш дзейная, ініцыятыўная частка калектыву, арганізацыі. *А. прафкама.*

**АКТЫ́Ў**[2], -ы́ву, *м.* (спец.). Вартасць наяўнай і даўгавой маёмасці, што належыць прадпрыемству; *проціл.* пасіў. *Запісаць у а.* || *прым.* **акты́ўны**, -ая, -ае. *А. баланс.*

**АКТЫ́ЎНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Дзейны, энергічны; *проціл.* пасіўны. *А. прапагандыст новых ідэй. Актыўна* (прысл.) *працаваць.* **2.** Які хутка развіваецца. *А. працэс у лёгкіх.* || *наз.* **акты́ўнасць**, -і, *ж.*

**АКТЫ́ЎНЫ**[2] гл. актыў[2].

**АКТЭ́Т**, -а, *М* актэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Музычны твор для васьмі выканаўцаў з самастойнымі партыямі для кожнага. **2.** Ансамбль з васьмі выканаўцаў. || *прым.* **актэ́тны**, -ая, -ае.

**АКУ́ЛА**, -ы, *мн.* -ы, аку́л, *ж.* Буйная драпежная марская рыба. || *прым.* **аку́лавы**, -ая, -ае.

**АКУЛІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Прышчапіць (прышчэпліваць) да дзікай расліны вочка культурнай расліны. *А. дзічку.* || *наз.* **акуліррава́нне**, -я, *н.* і **акуліро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**АКУЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач, спецыяліст па хваробах вачэй. || *ж.* **акулі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **акулі́сцкі**, -ая, -ае.

**АКУЛЬТУ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* (спец.). Зрабіць культурным (у 4 знач.). || *незак.* **акульту́рваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **акульту́рванне**, -я, *н. А. дзікіх раслін.*

**АКУЛЯ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). У аптычнай прыладзе: шкло, якое накіравана да вока назіральніка. *А. тэлескопа.* || *прым.* **акуля́рны**, -ая, -ае. *Акулярнае шкло.*

**АКУЛЯ́РЫ**, -аў. Аптычная прылада з дзвюх лінз, якая служыць для выпраўлення недахопаў зроку або засцярогі вачэй ад пашкоджання. *А. для блізарукіх. Сонцаахоўныя а.*

**АКУМУЛЯ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыстасаванне для накаплення энергіі з мэтай далейшага яе выкарыстання. *Электрычны а.* || *прым.* **акумуля́тарны**, -ая, -ае.

**АКУНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.; гл.* акунуць. ◊ **Акунуцца з галавой у работу** — цалкам аддацца якой-н. справе, поўнасцю прысвяціць сябе чаму-н. || *незак.* **акуна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АКУНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* Апусціць у вадкасць на кароткі час. *А. у ваду галаву.* || *незак.* **акуна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *звар.* **акуну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *незак.* **акуна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АКУ́НЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Азёрна-рачная рыба сямейства акунепадобных зеленавата-жоўтага колеру з чорнымі папярочнымі палоскамі і чырванаватымі ніжнімі плаўнікамі. || *прым.* **акунёвы**, -ая, -ае. *Акунёвая юшка. Акунёвыя* (наз.) — *гэта азёрна-рачная рыба.*

**АКУПА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік акупацыі, захопнік. || *прым.* **акупа́нцкі**, -ая, -ае.

**АКУПА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Гвалтоўны захоп чужой тэрыторыі ваеннай сілай. *Гады акупацыі.* || *прым.* **акупацы́йны**, -ая, -ае. *Акупацыйныя войскі.*

**АКУПІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* Правесці (праводзіць) акупацыю чаго-н.

**АКУПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -у́піцца; *зак.* Аплаціцца (пра выдаткі). *Затраты на будоўлю акупяцца. Намаганні акупяцца* (перан.). || *незак.* **акупля́цца**, -я́ецца і **аку́пліваца**, -аецца.

**АКУПІ́ЦЬ**, -уплю́, -у́піш, -у́піць; -у́плены; *зак., што.* Вярнуць што-н. патрачанае, выдаткаванае. *А. расходы.* || *незак.* **акупля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е і **аку́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АКУ́ПНАСЦЬ**, -і, *ж.* Здольнасць, магчымасць акупіцца. *А. будаўніцтва.*

**АКУ́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* Недакурак, рэшткі выкуранай ці недакуранай папяросы, цыгары.

**АКУРА́Т**, *прысл.* (разм.). Якраз, дакладна. *Прыбылі а. к 12 гадзінам.*

**АКУРА́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які захоўвае парадак, дакладнасць; спраўны. *А. чалавек.* **2.** Старанна, спраўна зроблены, дакладны. *Акуратная работа.* || *наз.* **акура́тнасць**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**АКУРА́ТНА**, *прысл.* **1.** Старанна і чыста. *А. апранацца.* **2.** Дакладна, рэгулярна. *А. кожны дзень прыходзілі газеты.* **3.** Асцярожна (разм.). *А. распытаць, давядацца пра справы.*

**АКУРАТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які вызначаецца акуратнасцю ў працы, бездакорнасцю ў паводзінах, ахайнасцю адзення і пад. || *ж.* **акураты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АКУРЫ́ЦЬ**, -уру́, -у́рыш, -у́рыць; -у́раны; *зак., каго-што.* Абдаць дымам з якой-н. мэтай. *А. памяшканне. А. пчол.* || *незак.* **аку́рваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **аку́рванне**, -я, *н.*

**АКУ́СТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст у галіне акустыкі (у 1 знач.). **2.** Работнік, які абслугоўвае гукаўлоўныя апараты.

**АКУ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Раздзел фізікі, які вывучае гукавыя з'явы. **2.** Чутнасць гукаў (музыкі, гутаркі і пад.) у якім-н. памяшканні, абумоўленая формай і матэрыялам гэтага памяшкання. *А. тэатральнай залы.* || *прым.* **акусты́чны**, -ая, -ае.

**АКУ́ЦЬ**, -ую́, -уе́ш, -уе́; -уём, -уяце́, -ую́ць; -у́ты; *зак., што* і *чым.* Тое, што і акаваць. *А. сундук жалезам.*

**АКУ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прылада (плуг) для акучвання.

**АКУ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Узрыхліўшы глебу, абгарнуць ёю што-н. *А. бульбу.* || *незак.* **аку́чваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **аку́чванне**, -я, *н.*

**АКУШЭ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач, спецыяліст па акушэрстве.

**АКУШЭ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Асоба сярэдняга медыцынскага персаналу, спецыялістка па акушэрстве (у 2 знач.).

**АКУШЭ́РСТВА**, -а, *н.* **1.** Раздзел медыцыны, прысвечаны пытанням прафесійнай дапамогі пры цяжарнасці, родах і ў пасляродавы перыяд. *Лекцыі па акушэрстве.* **2.** Дзейнасць акушэра, акушэркі, аказанне дапамогі пры родах. || *прым.* **акушэ́рскі**, -ая, -ае.

**АКЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прафесійны выканаўца роляў у спектаклях, фільмах. || *ж.* **актры́са**, -ы, *мн.* -ы, -ры́с. || *прым.* **акцёрскі**, -ая, -ае. *Акцёрская поза* (перан.: знарок прынятая эфектная пастава).

**АКЦЁРСТВА**, -а, *н.* **1.** Занятак, прафесія акцёра; тэатральнае мастацтва. **2.** *перан.* Прытворства, пазіраванне ў паводзінах (разм.).

**АКЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Скласці (складаць) акт з мэтай засведчыць наяўнасць ці адсутнасць чаго-н. || *зак.* таксама **заакці́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**АКЦЫ́З**, -у, *м.* Ускосны падатак на тавары шырокага спажывання і паслугі, які ўваходзіць у іх кошт і складае частку бюджэту краіны. || *прым.* **акцы́зны**, -ая, -ае.

**А́КЦЫЯ**[1], -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Каштоўная папера, якая сведчыць аб узносе пэўнага паю ў прадпрыемства і дае права яе ўладальніку на ўдзел у прыбытках гэтага прадпрыемства. *Скупіць акцыі. Акцыі падняліся* (цана на іх узрасла). ◊ **Акцыі** *чые* **падаюць** (або **павышаюцца**) — падае (або павышаецца) уплыў, роля каго-н. у чым-н. || *прым.* **акцыяне́рны**, -ая, -ае. *Акцыянерны капітал. Акцыянернае таварыства.*

**А́КЦЫЯ**[2], -і, *ж.* (кніжн.). Дзеянне, накіраванае на дасягненне пэўнай мэты. *Дыпламатычная а.*

**АКЦЫЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Уладальнік акцый[1], саўладальнік акцыянернага прадпрыемства. || *прым.* **акцыяне́рскі**, -ая, -ае.

**АКЦЭ́НТ**, -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Націск у слове, а таксама знак націску (спец.). *Зрабіць а. на чым-н.* (перан.: падкрэсліваючы, звярнуць увагу на што-н.; кніжн.). **2.** Асаблівасці вымаўлення, уласцівыя тым, хто гаворыць на чужой мове. || *прым.* **акцэ́нтны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**АКЦЭНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Паставіць (ставіць) акцэнт (у 1 знач.) на чым-н. (спец.). **2.** *перан.* Вылучыць (вылучаць), падкрэсліць (падкрэсліваць) якую-н. дум-

ку ў выказванні (кніжн.). *А. увагу на больш важным, істотным.*

**АКЫ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Народны паэт-пясняр (у казахаў, кіргізаў). ‖ *прым.* **акы́нскі**, -ая, -ае.

**АКЫ́Ш**, *выкл.* Вокрык, якім адпуджваюць курэй, птушак. — *Акыш, каб на вас!*

**АЛАВЯ́НЫ** *гл.* волава.

**АЛА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Невялікі тоўсты мучны або бульбяны блін, спечаны на патэльні, звычайна з адной лыжкі цеста. *Пышныя аладкі.* ‖ *памянш.* **ала́дачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **ала́дачны**, -ая, -ае.

**АЛАПА́Т**, -а, *М* -па́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач, які лечыць метадамі алапатыі.

**АЛАПА́ТЫЯ**, -і, *ж.* Звычайная сістэма лячэння, названая так у супрацьлегласць гамеапатыі. ‖ *прым.* **алапаты́чны**, -ая, -ае.

**АЛА́Х**, -а, *м.* Бог у мусульман. ◊ **Алах яго ведае** (разм., часта жарт.) — невядома, не ведаю.

**АЛБА́НЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Албаніі. ‖ *ж.* **алба́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **алба́нскі**, -ая, -ае.

**АЛГАРЫ́ТМ**, -у, *м.* (спец.). Сукупнасць паслядоўных дзеянняў, правіл для рашэння пэўнай задачы. *А. здабывання кораня.* ‖ *прым.* **алгарытмі́чны**, -ая, -ае.

**А́ЛГЕБРА**, -ы, *ж.* Раздзел матэматыкі, які вывучае агульныя законы дзеянняў над велічынямі незалежна ад іх лікавага значэння. ‖ *прым.* **алгебраі́чны**, -ая, -ае.

**АЛЕ́**[1], *злуч.* **I.** *супраціўны.* **1.** Злучае процілеглыя члены сказа і сказы; адпавядае па знач. словам «а», «аднак», «наадварот». *Хлопец гаварыў па-беларуску, але з моцным польскім акцэнтам.* **2.** Злучае члены сказа і сказы з узаемным выключэннем. *Ты ведаеш, але казаць не хочаш!* **3.** Злучае сказы, у адным з якіх выказваецца неадпаведнасць таму, аб чым гаворыцца ў другім сказе. *Быў ён там ці не быў, напэўна ніхто не ведаў, але ж людзі называлі яго імя.* **II.** *далучальны.* **1.** Далучае сказы і члены сказа, якія развіваюць, дапаўняюць або паясняюць выказаную ў папярэднім сказе ці словазлучэнні думку. *Кожны выбірае свой шлях да шчасця, але толькі яно не заўсёды даецца лёгка і проста.* **2.** Далучае члены сказа і сказы, звязаныя паміж сабой часавай паслядоўнасцю. *Яна зачыніла дзверы, але праз хвіліну хтосьці пачаў стукаць у іх.* **3.** Ужыв. ў пачатку самастойных сказаў пры рэзкім пераходзе да новай думкі і адпавядае злучніку «ды». *Нават і ён маўчаў... Але што я кажу, — ён, напэўна, лепш за ўсіх разумеў нас.* **4.** *у знач. наз., нескл., н.* Пярэчанне, перашкода (разм.). *Ніякіх але!*

**АЛЕ́**[2], *часц.* **1.** *сцвярдж.* Ужыв. пры сцвярджэнні або згодзе з чым-н. *Усё тут? — Але.* **2.** *узмацн.* Ужыв. пры здзіўленні, захапленні, абурэнні і пад. *Але ж і мароз!*

**АЛЕАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* **1.** Даўні спосаб узнаўлення карцін, намаляваных алейнымі фарбамі. **2.** Копія карціны, малюнка, атрыманая такім спосабам. ‖ *прым.* **алеаграфі́чны**, -ая, -ае.

**АЛЕА́НДР**, -а, *м.* Паўднёвая вечназялёная кустовая расліна сямейства кутравых з чырвонымі, ружовымі або белымі пахучымі кветкамі. ‖ *прым.* **алеа́ндравы**, -ая, -ае.

**АЛЕБА́РДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Старажытная зброя ў выглядзе сякеры на доўгім дрэўку, якое заканчваецца кап'ём. ‖ *прым.* **алеба́рдны**, -ая, -ае.

**АЛЕБА́СТР**, -у, *м.* **1.** Дробназярністы будаўнічы гіпс. **2.** Празрысты дробназярністы гіпсавы камень, які ўжыв. для арнаментных вырабаў. ‖ *прым.* **алеба́страву**, -ая, -ае.

**АЛЕГО́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Іншасказальнасць, выказванне адцягненага паняцця пры дапамозе канкрэтнага мастацкага вобраза. *Гаварыць алегорыямі* (няясна, з малазразумелымі намёкамі на што-н.). ‖ *прым.* **алегары́чны**, -ая, -ае; *наз.* **алегары́чнасць**, -і, *ж.*

**АЛЕ́ГРА** (спец.). **1.** *прысл.* Хутка, ажыўлена (пра тэмп выканання музычных твораў). **2.** *наз. нескл., н.* Музычны твор або яго частка ў такім тэмпе.

**АЛЕ́ІСТЫ**, -ая, -ае. Які ўтрымлівае ў сабе многа алею, тлусты. *А. сланечнік.* ‖ *наз.* **але́істасць**, -і, *ж.*

**АЛЕ́Й**, -ю, *м.* Тлушч з насення раслін. *Сланечнікавы а. Какосавы а. Канапляны а.* ‖ *прым.* **але́йны**, -ая, -ае; *наз.* **але́йнасць**, -і, *ж.*

**АЛЕ́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *алейшчык.*

**АЛЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* алей. **2.** Выкананы фарбамі, расцёртымі на алеі, звязаны з выкарыстаннем такіх фарбаў. *А. жывапіс. Алейная фарба.* **3.** Які дае алей, з якіх вырабляецца алей (пра расліны). *Алейныя культуры.* **4.** Які адносіцца да вытворчасці алею. *А. завод.*

**АЛЕ́ЙНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Прадпрыемства па вырабе алею.

**АЛЕ́ЙШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па вырабе алею; алейнік.

**АЛЕКСАНДРЫ́Т**, -у, *М* -ры́це, *м.* Каштоўны камень, які змяняе свой колер ад ізумруднага (днём) да цёмна-чырвонага (пры штучным асвятленні).

**АЛЕНЕГАДО́ВЕЦ**, -до́ўца, *мн.* -до́ўцы, -до́ўцаў, *м.* Спецыяліст па аленегадоўлі.

**АЛЕНЕГАДО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Развядзенне аленяў як галіна жывёлагадоўлі. ‖ *прым.* **аленегадо́ўчы**, -ая, -ае. *Аленегадоўчая гаспадарка.*

**АЛЕ́НІНА**, -ы, *ж.* Мяса аленя як ежа.

**АЛЕ́НІХА**, -і, *мн.* -і, -ніх, *ж.* Самка аленя.

**АЛЕ́НЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Парнакапытная жвачная млекакормячая жывёліна з галінастымі рагамі і кароткім хвастом. ‖ *прым.* **але́невы**, -ая, -ае.

**АЛЕНЯВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *аленегадовец.*

**АЛЕНЯНЯ́** *і* **АЛЕНЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіця аленя.

**АЛЕРГЕ́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Раздражняльнік, які выклікае алергію.

**АЛЕРГІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Павышаная адчувальнасць, імунная рэакцыя арганізма да ўздзеяння алергенаў (хваравіты стан). ‖ *прым.* **алергі́чны**, -ая, -ае.

**АЛЕУ́ТЫ**, -аў, *адз.* алеу́т, -а, *М* -у́це, *м.* Паўночная народнасць, карэннае насельніцтва Алеуцкіх і Камандорскіх астравоў. ‖ *ж.* **алеу́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **алеу́цкі**, -ая, -ае.

**АЛЕ́ШНІК**, -у, *м.* **1.** Зараснік альхі, альховы лес. **2.** Альховыя дровы; будаўнічы матэрыял з вольхі і пад. *Воз алешніку.* ‖ *прым.* **але́шнікавы**, -ая, -ае.

**АЛЕ́ШЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -шын, *ж.* **1.** Лісцевае дрэва сямейства бярозавых; вольха. **2.** толькі *адз.* Драўніна, матэрыял гэтага дрэва.

**АЛЕ́Я**, -і, *мн.* -і, але́й, *ж.* Дарога, абсаджаная з абодвух бакоў дрэвамі, кустамі; прысады, дарожка ў парку або ў садзе. *Бярозавая а.* ‖ *памянш.* **але́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, але́ек, *ж.* ‖ *прым.* **але́йны**, -ая, -ае.

**АЛЖЫ́РЦЫ**, -аў, *адз.* -рац, -рца, *м.* Насельніцтва Алжыра. ‖ *ж.* **алжы́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **алжы́рскі**, -ая, -ае.

**А́ЛІБІ**, *нескл., н.* (спец.). Знаходжанне абвінавачанага ў момант, калі адбывалася злачынства, у іншым месцы як доказ невінаватасці ў злачынстве. *Мець а.*

**АЛІ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, алі́ў, *ж.* **1.** Вечназялёнае паўднёвае дрэва сямейства маслінавых; масліна. **2.** Ядомы плод гэтага дрэва. **3.** Алей, атрыманы з яго пладоў. **4.** Змазачнае масла.

**АЛІГА́РХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Прадстаўнік буйнога, манапалістычнага капіталу. *Расійскі а.* **2.** Правіцель алігархіі (у 1 знач.).

**АЛІГА́РХІЯ**, -і, *ж.* **1.** У старажытнасці і ў Сярэднія вякі: дзяржава, заснаваная на панаванні арыстакратычных вярхоў. **2.** Эканамічнае і палітычнае панаванне невялікай групы прадстаўнікоў манапалістычнага капіталу. *Фінансавая а.* ‖ *прым.* **алігархі́чны**, -ая, -ае.

**АЛІГА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тупарылы кракадзіл, распаўсюджаны ў Паўночнай Амерыцы і Паўднёвым Кітаі. *Усходнеазіяцкі а.*

**АЛІЗАРЫ́Н**, -у, *м.* Фарбавальнае рэчыва, якое вырабляецца з карэння марэны або з мінералаў і ўжыв. для фарбавання тканін, вырабу мастацкай фарбы, у паліграфіі. ‖ *прым.* **алізары́навы**, -ая, -ае. *Алізарынавае чарніла.*

**АЛІЛУ́Я**, *выкл.* Вітанне, адрасаванае Богу, хвалебны малітоўны выгук у набажэнствах іўдзейскай і хрысціянскай рэлігій.

**АЛІМЕ́НТШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто плаціць аліменты.

**АЛІМЕ́НТЫ**, -аў. Матэрыяльныя сродкі (грошы), якія выплочваюцца ў адпаведнасці з пастановай суда на ўтрыманне непрацаздольных дзяцей або бацькоў асобамі, што звязаны з імі адносінамі роднасці. *Плаціць а.* ‖ *прым.* **аліме́нтны**, -ая, -ае.

**АЛІ́МП**, -а, *м.* **1.** (з вялікай літары). У старажытнагрэчаскай міфалогіі: гара, дзе знаходзіліся багі; зборышча багоў. **2.** *перан.* Кола абраннікаў якога-н. аб'яднання, таварыства. *Літаратурны а.* ‖ *прым.* **алімпійскі**, -ая, -ае.

**АЛІМПІ́ЕЦ**, -пійца, *мн.* -пійцы, -пійцаў, *м.* **1.** У старажытнагрэчаскай міфалогіі: бог, жыхар Алімпа. **2.** Спартсмен — удзельнік Алімпійскіх гульняў.

**АЛІМПІ́ЙСКІ**, -ая, -ае; *гл.* алімп, алімпіяда. ○ **Алімпійскія гульні** — усенародныя гульні ў Старажытнай Грэцыі ў гонар бога Зеўса, якія наладжваліся адзін раз у 4 гады паблізу Алімпіі, а таксама сучасныя міжнародныя спаборніцтвы па ўсіх асноўных відах спорту. ◊ **Алімпійскі спакой** — велічны, непарушны, поўны спакой.

**АЛІМПІЯ́ДА**, -ы, *М* -дзе, *мн.* -ы, -піяд, *ж.* **1.** У Старажытнай Грэцыі: прамежак у 4 гады паміж алімпійскімі гульнямі, які служыў адзінкай летазлічэння. **2.** Міжнародныя спартыўныя спаборніцтвы, якія на ўзор старажытнагрэчаскіх алімпійскіх гульняў праводзяцца раз у чатыры гады. *Белая а.* (зімовая). **3.** Спаборніцтвы навучэнцаў у вызначаных галінах ведаў. *А. па матэматыцы.* ‖ *прым.* **алімпія́дны**, -ая, -ае *і* **алімпійскі**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Алімпійскі медаль. Алімпійскі агонь* (факел, які запальваецца ад сонечных прамянёў у Алімпіі і дастаўляецца эстафетай на месца правядзення Алімпійскіх гульняў; агонь, запалены ад гэтага факела, які гарыць у чашы на працягу Алімпійскіх гульняў). *Алімпійскі чэмпіён.*

**АЛІ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, алівак, *ж.* Плод алівы (у 1 знач.), масліна. ‖ *прым.* **алі́ўкавы**, -ая, -ае. *А. колер* (жоўта-зялёны з карычневым адценнем). *Аліўкавая галінка* (сімвал міру).

**АЛІ́ЎКАВЫ** *гл.* аліўка.

**АЛКАГАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Цяжкае хранічнае захворванне, якое выклікаецца злоўжываннем спіртнымі напіткамі, выяўляецца ў псіхічнай і фізічнай залежнасці ад алкаголю. *Лячэнне ад алкагалізму.* **2.** Тое, што і *п'янства. Барацьба з алкагалізмам.* ‖ *прым.* **алкагалі́чны**, -ая, -ае.

**АЛКАГО́ЛІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які хварэе на алкагалізм; п'яніца. ‖ *ж.* **алкагалі́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**АЛКАГО́ЛЬ**, -ю, *м.* **1.** Аднаатамны спірт (спец.). **2.** Арганічныя злучэнні, у склад малекул якіх уваходзіць група атамаў кіслароду і вадароду; спіртныя напіткі. *Танны а.* ‖ *прым.* **алкаго́льны**, -ая, -ае.

**АЛМА́З**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у. Празрысты каштоўны камень, які сваім бляскам і цвёрдасцю перавышае ўсе іншыя мінералы; крышталёвая кубічная мадыфікацыя самароднага чыстага вугляроду. **2.** -а. Інструмент для рэзання шкла ў выглядзе вострага тонкага кавалка гэтага каменя, устаўленага ў ручку; шкларэз. ‖ *прым.* **алма́зны**, -ая, -ае.

**АЛО́ВАК**, алоўка, *мн.* алоўкі, алоўкаў, *м.* Прылада для пісьма, малявання, чарчэння — тонкая палачка графіту або сухой фарбы ў драўлянай, пластыкавай, металічнай і інш. абалонцы. *Каляровыя алоўкі.* ‖ *прым.* **ало́ўкавы**, -ая, -ае.

**АЛТА́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -таец, -тайца, *м.* Карэннае насельніцтва Рэспублікі Алтай (у складзе Расійскай Федэрацыі). ‖ *ж.* **алта́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -таек. ‖ *прым.* **алта́йскі**, -ая, -ае.

**АЛТА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Усходняя, узвышаная частка хрысціянскага храма (у праваслаўнай царкве аддзеленая ад агульнага памяшкання іканастасам). **2.** Даўней: месца, на якое ўскладаліся ахвярапрынашэнні. ◊ **Прынесці (сваё жыццё) на алтар бацькаўшчыны** — ахвяраваць сваім жыццём у імя Радзімы (высок.). ‖ *прым.* **алта́рны**, -ая, -ае.

**АЛФАВІ́Т**, -а, *М* -віце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сукупнасць літар дадзенай сістэмы пісьма, размешчаных ва ўстаноўленым парадку. *Беларускі а.* **2.** Парадак літар, прыняты ў азбуцы. *Напісаць прозвішчы супрацоўнікаў паводле алфавіта.* **3.** *чаго.* Указальнік, пералік чаго-н. па парадку літар азбукі. *А. уласных імён.* ‖ *прым.* **алфаві́тны**, -ая, -ае.

**АЛХІ́МІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца алхіміяй.

**АЛХІ́МІЯ**, -і, *ж.* Пошукі спосабаў ператварэння простых металаў у каштоўныя пры дапамозе так званага філасофскага каменя ў данавуковы перыяд развіцця хіміі. ‖ *прым.* **алхімі́чны**, -ая, -ае.

**АЛЫЧА́**, -ы́, *ж.* **1.** Пладовае дрэва сямейства ружакветных, род дробнай слівы. **2.** Плод гэтага дрэва. ‖ *прым.* **алычо́вы**, -ая, -ае.

**АЛЬБАТРО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая марская вадаплаўная птушка атрада буравеснікаў з моцнай выгнутай дзюбай і доўгімі вузкімі крыламі.

**АЛЬБІНО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, жывёла або расліна, у якіх адсутнічае нармальная пігментацыя. ‖ *ж.* **альбіно́ска**, -і, *ДМ* -носцы, *мн.* -і, -сак. ‖ *прым.* **альбіно́савы**, -ая, -ае.

**АЛЬБО́**, *злуч.* (разм.). Тое, што і *або.*

**АЛЬБО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сшытак або кніга з чыстымі лістамі для малюнкаў, фатаграфій, якіх-н. калекцый і пад. *Сямейны а. А. для марак.* **2.** Кніжнае выданне з рэпрадукцыямі карцін, малюнкаў, фатаграфій і пад., іх тэматычны збор. *А. з краявідамі Полаччыны. Архітэктурны а.* ‖ *прым.* **альбо́мны**, -ая, -ае.

**АЛЬВА́С**, -у, *м.* (разм.). Тое, што і *альяс.* ‖ *прым.* **альва́савы**, -ая, -ае.

**АЛЬКО́Ў**, -кова, *мн.* -ковы, -коваў, *м.* Ніша ў сцяне для ложка. ‖ *прым.* **алько́ўны**, -ая, -ае. *Алькоўная фіранка.*

**А́ЛЬМА-МА́ТАР**, *нескл., ж.* (кніжн.). Іншасказанне для вышэйшай навучальнай установы, у якой вучыўся.

**АЛЬМАНА́Х**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Неперыядычны зборнік з літаратурна-мастацкімі, гістарычнымі ці публіцыстычнымі творамі розных аўтараў-сучаснікаў. ‖ *прым.* **альмана́шны**, -ая, -ае (уст.).

**АЛЬПІ́ЙСКІ**, -ая, -ае. **1.** *прым.* да Альпы. **2.** Высакагорны. *Альпійская расліннасць.*

**АЛЬПІНА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Участак саду або парку ў выглядзе камяністай горкі, засаджаны расліннасцю.

**АЛЬПІНІ́ЗМ**, -у, *м.* Від спорту, звязаны з узыходжаннем на высокія горныя вяршыні. ‖ *прым.* **альпіні́цкі**, -ая, -ае. *А. лагер.*

**АЛЬПІНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца альпінізмам. ‖ *ж.* **альпіні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **альпіні́цкі**, -ая, -ае. *А. рыштунак.*

**АЛЬПІНІЯ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ніяд *і* -ніядаў, *ж.* Вучэбна-спартыўныя або юбілейныя зборы альпіністаў.

**АЛЬТ**, -а́, *мн.* альты́, -о́ў, *м.* **1.** Нізкі жаночы або дзіцячы голас. **2.** Спявак (спявачка) з такім голасам. **3.** Музычны смычковы або медны духавы інструмент нізкага рэгістра. ‖ *прым.* **альто́вы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**АЛЬТА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Летняя паркавая або садовая пабудова для адпачынку; сховішча ад дажджу і сонца. ‖ *прым.* **альта́нкавы**, -ая, -ае *і* **альта́начны**, -ая, -ае.

**АЛЬТРУІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Бескарыслівае служэнне іншым, гатоўнасць ахвяраваць сваімі асабістымі інтарэсамі; *проціл.* эгаізм. ‖ *прым.* **альтруісты́чны**, -ая, -ае; *наз.* **альтруісты́чнасць**, -і, *ж.*

**АЛЬТРУІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто кіруецца альтруізмам. ‖ *ж.* **альтруі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **альтруі́цкі**, -ая, -ае.

**АЛЬТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыка, што іграе на альце. ‖ *ж.* **альты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АЛЬТЭРНАТЫ́ВА** -ы, *мн.* -ы, -тыў, *ж.* (кніжн.). **1.** Неабходнасць выбару адной з дзвюх або некалькіх магчымасцей. **2.** Кожная з такіх магчымасцей. *Знайсці альтэрнатыву чаму-н.* ‖ *прым.* **альтэрнаты́ўны**, -ая, -ае.

**А́ЛЬФА**, -ы, *ж.* Назва першай літары грэчаскага алфавіта. ◊ **Ад альфы да амегі** (кніжн.) — ад пачатку да канца. **Альфа і амега** *чаго* (кніжн.) — аснова, сутнасць, самае галоўнае ў чым-н.

**АЛЬФА-...** Першая састаўная частка складаных слоў у складзе некаторых тэрмінаў. ○ **Альфа-часціцы** — ядры атама гелію. **Альфа-прамяні** — адзін з відаў выпрамянення радыеактыўных ядзер. **Альфа-распад** — выдзяленне альфа-часціц

пры самаадвольным распадзе атамных ядзер.

**АЛЬХО́ВЫ** *гл.* вольха.

**АЛЬЯ́НС**, -у, *м.* (кніжн.). Саюз, аб'яднанне на аснове дагаворных абавязацельстваў. *Міжнародны кааператыўны а.*

**АЛЬЯ́С**, -у, *м.* Шматгадовая травяністая трапічная расліна з тоўстым мясістым лісцем, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне; алоэ. ‖ *прым.* **альясавы**, -ая, -ае.

**АЛЮМІ́НІЙ**, -ю, *м.* Хімічны элемент, лёгкі, коўкі серабрыста-белы метал. ‖ *прым.* **алюмініевы**, -ая, -ае.

**АЛЮ́Р**, -у, *м.* Спосаб хады, бегу каня (галоп, рысь, інахадзь, скачок). ‖ *прым.* **алю́рны**, -ая, -ае.

**АЛЯПАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Няўмела, безгустоўна, груба зроблены. *А. малюнак.* ‖ *наз.* **аляпава́тасць**, -і, *ж.*

**АМАЗО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** У старажытнагрэчаскай міфалогіі: прадстаўніца ваяўнічага племені жанчын. **2.** Жанчына-коннік у спецыяльным касцюме для верхавой язды. **3.** Доўгая сукенка для верхавой язды. *Імчаліся конна жанчыны ў чорных амазонках.* ‖ *прым.* **амазо́нскі**, -ая, -ае. *А. дэльфін.*

**АМАЛАДЗІ́ЦЦА**, -ладжу́ся, -ло́дзішся, -ло́дзіцца; *зак.* **1.** Стаць маладзейшым (з выгляду). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць абноўленым па складзе членаў чаго-н., уключыць у свой склад большую колькасць моладзі. *Калектыў амаладзіўся.* ‖ *незак.* **амало́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *наз.* **амало́джванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **амаладжэ́нне**, -я, *н.*

**АМАЛАДЗІ́ЦЬ**, -ладжу́, -ло́дзіш, -ло́дзіць; -ло́джаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць маладзейшым; вярнуць арганізму ўжо страчаныя адзнакі маладосці. **2.** *што.* Увесці больш моладзі ў склад чаго-н. *А. калектыў.* ‖ *незак.* **амало́джваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **амало́джванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **амаладжэ́нне**, -я, *н.*

**АМА́ЛЬ**, *прысл.* Без нечага, мала чаго не хапае да чаго-н., каля, блізка, прыблізна. *Ён а. дарослы. Працавалі а. цэлы дзень.*

**АМАЛЬГА́МА**, -ы, *ж.* **1.** Сплаў некаторых металаў з ртуццю, а таксама раствор металу ў ртуці (спец.). **2.** *перан.* Разнародная сумесь, спалучэнне чаго-н. (кніжн.). ‖ *прым.* **амальга́мны**, -ая, -ае.

**АМАНА́Л**, -у, *м.* Выбуховае рэчыва. ‖ *прым.* **амана́лавы**, -ая, -ае.

**АМАНІМІ́Я**, -і, *ж.* Гукавое супадзенне слоў пры розніцы значэнняў. ‖ *прым.* **аманімі́чны**, -ая, -ае.

**АМА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікі марскі рак атрада дзесяціногіх. ‖ *прым.* **ама́равы**, -ая, -ае.

**АМАРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які супярэчыць маралі, пазбаўлены маралі. *А. чалавек. А. ўчынак.* ‖ *наз.* **амара́льнасць**, -і, *ж.*

**АМАРТЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Зрабіць (рабіць) амартызацыю.

**АМАРТЫЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыстасаванне для амартызацыі (у 2 знач.). ‖ *прым.* **амартыза́тарны**, -ая, -ае.

**АМАРТЫЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Паступовае зніжэнне вартасці маёмасці ў выніку яе зношвання. **2.** Аслабленне сілы ўдараў, штуршкоў і пад. пры дапамозе спецыяльных прылад. ‖ *прым.* **амартызацы́йны**, -ая, -ае. *Амартызацыйныя прыстасаванні* (рысоры, буферы і пад.).

**АМА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *чаго* і *з інф.* Ахвотнік да чаго-н., чалавек, які мае схільнасць да чаго-н., захапляецца чым-н. *А. музыкі. А. выступаць.* **2.** Той, хто займаецца чым-н. не як прафесіянал; любіцель. *Садавод-а. Рыбалоў-а.* ‖ *ж.* **ама́тарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (да 1 знач.). ‖ *прым.* **ама́тарскі**, -ая, -ае (да 2 знач.). *А. спектакль.*

**АМА́ТАРСТВА**, -а, *н.* Занятак аматара, аматараў.

**А́МБА**, *нескл., ж.; у знач. вык., каму* (разм.). Ужыв. ў знач. «ўсё», «канец», «кончана», «смерць», «каюк». *Бюракраты і а.!*

**АМБІ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Абвостранае самалюбства, ганарлівасць, фанабэрыстасць. **2.** звычайна *мн.* Прэтэнзіі, дамаганні чаго-н. (неадабр.). *Нічым не абгрунтаваныя амбіцыі.* ◊ **Кідацца ў амбіцыю** — пакрыўдзіўшыся, выказваць незадавальненне, злавацца. ‖ *прым.* **амбіцы́йны**, -ая, -ае *і* **амбі́тны**, -ая, ае.

**АМБО́Н**, -а, *м.* Узвышанае месца ў царкве, з якога чытаюцца пропаведзі перад іканастасам. ‖ *прым.* **амбо́нны**, -ая, -ае.

**АМБРАЗУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Адтуліна ў абарончым збудаванні; байніца. **2.** Аконны або дзвярны праём (спец.). ‖ *прым.* **амбразу́рны**, -ая, -ае.

**АМБРО́ЗІЯ**, -і, *ж.* **1.** У грэчаскай міфалогіі: ежа багоў, якая падтрымлівала вечную маладосць і прыгажосць. **2.** Род травяністых раслін сямейства складанакветных.

**АМБУЛАТО́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Лячэбніца для аказання медыцынскай дапамогі ў самой установе і дома. ‖ *прым.* **амбулато́рны**, -ая, -ае. *Амбулаторнае лячэнне.*

**АМЕ́ГА**, -і, *ДМ* аме́зе, *ж.* Назва апошняй літары грэчаскага алфавіта.

**АМЕРЫКА́НЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Насельніцтва Злучаных Штатаў Амерыкі. ‖ *ж.* **амерыка́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **амерыка́нскі**, -ая, -ае.

**АМЕТЫ́СТ**, -у, *М* -сце, *м.* Каштоўны камень фіялетавага або з блакітным адценнем колеру. ‖ *прым.* **амеabsent́ставы**, -ая, -ае.

**АМЕ́ЦЦЕ**, -я, *н., зб.* Дробныя рэшткі, кавалачкі каласоў, мякіны і пад., што атрымліваюцца пры малацьбе і ачыстцы зерня.

**АМЁБА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Прасцейшая аднаклетачная жывёліна, якая ў працэсе руху змяняе форму цела. ‖ *прым.* **амёбны**, -ая, -ае.

**АМІ́Н** *і* **А́МЭН**, *часц., у знач. вык.* **1.** Заключнае слова пропаведзі, малітвы ў знач. «так», «сапраўды». **2.** *наз., м.* (толькі *Н* адз.), *каму-чаму.* Канец (уст.). *Цяпер яму а.*

**АМІ́ЧНЫ** *гл.* ом.

**АМІЯ́К**, -у, *м.* Бясколерны газ з рэзкім непрыемным пахам, злучэнне азоту з вадародам. ‖ *прым.* **амія́чны**, -ая, -ае.

**АМЛЕ́Т**, -у, *М* -ле́це, *м.* Страва з разбоўтаных з малаком і мукой яек. ‖ *прым.* **амле́тны**, -ая, -ае.

**АМНІ́СТЫЯ**, -і, *ж.* Частковае або поўнае вызваленне ад судовага пакарання асуджаных, якое праводзіцца вярхоўнай уладай. *Вызваліцца па амністыі.* ‖ *прым.* **амністы́йны**, -ая, -ае.

**АМНІСЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго (што).* Прымяніць (прымяняць) амністыю да каго-н. *А. засуджаных.*

**АМО́НІЙ**, -ю, *м.* **1.** Аднавалентная група атамаў азоту і вадароду, якая ўваходзіць у састаў многіх солей. *Сернакіслы а.* **2.** Парашок, які ўжыв. замест драджджэй. ‖ *прым.* **амо́ніевы**, -ая, -ае.

**АМО́РФНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае крышталічнай будовы (спец.). **2.** *перан.* Бясформенны, расплывісты (кніжн.). ‖ *наз.* **амо́рфнасць**, -і, *ж.*

**АМПЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў *і* пры падліку пераважна ампе́р, *м.* (спец.). Адзінка сілы электрычнага току. ‖ *прым.* **ампе́рны**, -ая, -ае.

**АМПЕРМЕ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння сілы электрычнага току.

**АМПІ́Р**, -у, *м.* Мастацкі (галоўным чынам у архітэктуры) стыль, які ўзнік у Францыі ў канцы 18 — пачатку 19 ст., заснаваны на імітацыі антычных узораў. *Будынак у стылі а.* ‖ *прым.* **ампі́рны**, -ая, -ае.

**АМПЛІТУ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* (спец.). Размах вагання, найбольшае адхіленне цела, што хістаецца, ад стану раўнавагі; розніца межаў, паміж якімі змяняецца якая-н. пераменная велічыня. *А. хістання маятніка. А. гадавой тэмпературы. А. цэн.* ‖ *прым.* **амплітуд́ны**, -ая, -ае.

**АМПЛУА́**, *нескл., н.* **1.** Пэўнае характэрнае кола роляў, якія выконваюцца акцёрам. *А. коміка.* **2.** *перан.* Сфера заняткаў каго-н.

**А́МПУЛА**, -ы, *мн.* -ы, а́мпул, *ж.* Герметычна запаяная шкляная пасудзіна невялікіх памераў для захавання чаго-н. (часцей дозы лякарстваў у стэрыльным выглядзе). *Лякарства ў ампулах.* ‖ *прым.* **а́мпульны**, -ая, -ае.

**АМПУТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што.* Зрабіць (рабіць) ампутацыю. *А. нагу.*

**АМПУТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Адразанне хворай канечнасці або знешняй часткі органа. *А. рукі.* ‖ *прым.* **ампутацы́йны**, -ая, -ае.

**АМУЛЕ́Т**, -а, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі прадмет, які носяць на целе як магічны сродак, здольны засцерагчы ад

бяды, хваробы і пад.; талісман. || *прым.* **амулéтны**, -ая, -ае.

**АМУЛЁВЫ** *гл.* омуль.

**АМУНІ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (уст.). **1.** Паходны рыштунак байца (акрамя зброі і адзення). *Пры поўнай амуніцыі* (з усім тым, што ваеннаслужачы павінен мець у паходзе). **2.** Больш шырока: адзенне і прылады. || *прым.* **амуні́чны**, -ая, -ае.

**АМУ́РНЫ**, -ая, -ае (жарт.). Любоўны. *Амурныя справы.*

**АМФІ́БІЯ**, -і, *мн.* -і, -бій, *ж.* **1.** Земнаводная жывёліна, лічынкі якой дыхаюць жабрамі, а дарослыя асобіны — лёгкімі. *Трытоны — гэта амфібіі.* **2.** Земнаводная расліна. **3.** Самалёт для ўзлёту і пасадкі на вадзе і на сушы, а таксама танк, аўтамабіль для руху па сушы і па вадзе. || *прым.* **амфібі́йны**, -ая, -ае.

**АМФІБРА́ХІЙ**, -я, *м.* Трохскладовая вершавая стапа з націскам на другім складзе. || *прым.* **амфібрахі́чны**, -ая, -ае.

**АМФІТЭА́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У старажытных грэкаў і рымлян: збудаванне для масавых відовішчаў, у якім месцы для гледачоў узвышаліся паўкругам. **2.** У сучасным тэатры: рады крэслаў, размешчаныя ў зале за партэрам, а таксама частка залы, дзе яны размешчаны.

**АМША́ЛЫ**, -ая, -ае. Які аброс мохам; абымшэлы. *Амшалыя хаты.*

**АМША́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ша́р *і* **АМША́РЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -рын, *ж.* Тое, што і *імшара.*

**АМШЫ́ЦЬ**, -шу́, -шы́ш, -шы́ць; -шы́м, -шыцé, -ша́ць; амшо́ны; *зак., што.* Тое, што і *абымшыць.*

**АМШЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *абымшэлы. Амшэлая старая хата.*

**АМШЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *зак.* Тое, што і *абымшэць.*

**АМЫЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Раскладанне арганічных злучэнняў вадой са шчолачамі. *А. тлушчаў.*

**АМЯЛА́**, -ы́, *ж.* Шматгадовая вечназялёная расліна з белымі атрутнымі ягадамі, якая паразітуе на іншых дрэвах.

**АМЯЛУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Невялікая лясная чубатая птушка атрада вераб'іных са стракатым апярэннем. || *прым.* **амялу́шкавы**, -ая, -ае.

**АМЯРЦВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які страціў адчувальнасць (пра клеткі, тканкі і пад.). *Амярцвелая тканка.* **2.** *перан.* Які страціў рухомасць пад уплывам чаго-н.; які заціх; які пазбавіўся маральных сіл, адчувае спустошанасць. *А. горад. Амярцвелае сэрца.* **3.** *перан.* Які аджыў, страціў значэнне, жыццёвасць. *Амярцвелыя традыцыі.* || *наз.* **амярцвéласць**, -і, *ж.*

**АМЯРЦВЕ́ННЕ** *гл.* мярцвець.

**АМЯРЦВЕ́ЦЬ** *гл.* мярцвець.

**АМЯРЦВІ́ЦЬ**, 1 ас. адз. не ўжыв., -цві́ш, -цві́ць; *зак., што.* **1.** Зрабіць неадчувальным, безжыццёвым. *А. тканку.* **2.** *перан.* Пакінуць без выкарыстання. *А. капітал.* **3.** *перан.* Пазбавіць цікавага, жывога зместу. *А. цікавую ідэю.* || *незак.* **амярцвля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **амярцвéнне**, -я, *н.*

**АМЯШЧА́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* (разм.). Стаць мешчанінам, абывацелем па настроі, учынках. || *незак.* **амяшча́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АНАБІЁЗ**, -у, *м.* (спец.). Рэзкае запавольванне або спыненне жыццёвых працэсаў у арганізме з наступным аднаўленнем іх пры спрыяльных умовах. || *прым.* **анабіяты́чны**, -ая, -ае *і* **анабіёзны**, -ая, -ае.

**АНА́ГР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дзікі асёл, які водзіцца ў Азіі. || *прым.* **ана́гравы**, -ая, -ае.

**АНАКО́НДА**, -ы, *ДМ* -ндзе, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Самая вялікая змяя сямейства ўдававых, якая жыве ў трапічных лясах, па берагах рэк, азёр Паўднёвай Амерыкі. || *прым.* **анако́ндавы**, -ая, -ае.

**АНА́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн.). Тое, што з'яўляецца падабенствам чаго-н., адпаведнасцю з чым-н. || *прым.* **ана́лагавы**, -ая, -ае.

**АНАЛАГІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Падобны, такі ж; заснаваны на аналогіі. *А. выпадак.* || *наз.* **аналагі́чнасць**, -і, *ж.*

**АНА́ЛІЗ**, -у, *м.* **1.** Метад навуковага даследавання шляхам разгляду асобных састаўных частак чаго-н., уласцівасцей; *проціл.* сінтэз. **2.** Усебаковы разбор, разгляд чаго-н. *А. новага рамана.* **3.** Вызначэнне саставу рэчыва. *А. крыві. Хімічны а.* ○ **Аналіз матэматычны** — адзін з раздзелаў вышэйшай матэматыкі. || *прым.* **аналіты́чны**, -ая, -ае. *А. розум* (схільны да аналізу). *А. метад.*

**АНАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Рабіць аналіз (у 1 і 2 знач.) чаго-н. *А. мастацкі твор.* || *зак.* таксама **прааналізава́ць**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны.

**АНАЛІ́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто мае схільнасць да аналітычных разважанняў, умее добра аналізаваць што-н. **2.** Спецыяліст, які займаецца аналізам (у 1 і 3 знач.). *Палітычны а. Хімік-а.*

**АНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Падабенства ў якіх-н. адносінах паміж прадметамі, з'явамі і паняццямі. *Правесці аналогію паміж з'явамі. Поўная а.*

**АНАЛО́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Высокі столік з пакатым верхам, на які ў царкве кладуць кнігі, абразы і іншыя прадметы. || *прым.* **анало́йны**, -ая, -ае.

**АНА́ЛЫ**, -аў. Запісы найбольш значных гістарычных падзей у храналагічным парадку; летапіс. *У аналах гісторыі* (перан.: аб чым-н. значным, гераічным, што ўвайшло ў гісторыю; высок.).

**АНАМА́ЛІЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Адхіленне ад нормы, ад агульнай заканамернасці; няправільнасць. *Магнітная а. Анамаліі ў развіцці арганізма.* || *прым.* **анама́льны**, -ая, -ае.

**АНАМА́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* (спец.). **1.** Сукупнасць уласных імён мовы. **2.** Раздзел мовазнаўства, які вывучае ўласныя імёны. || *прым.* **анамасты́чны**, -ая, -ае.

**АНА́МНЕЗ**, -у, *м.* (спец.). Сукупнасць медыцынскіх звестак, атрыманых шляхам апытання таго, хто абследуецца, а таксама тых, хто яго ведае. *Псіхіятрычны а.* || *прым.* **анамнесты́чны**, -ая, -ае.

**АНАНА́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Трапічная травяністая расліна з прадаўгаватым духмяным і сакавітым плодам, а таксама плод гэтай расліны. || *прым.* **анана́сны**, -ая, -ае *і* **анана́савы**, -ая, -ае.

**АНАНІ́ЗМ**, -у, *м.* Задавальненне палавой цягі раздражненнем (без палавога акта) палавых органаў.

**АНАНІ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Аўтар, які ўтойвае сваё прозвішча, а таксама літаратурны твор без указання прозвішча аўтара.

**АНАНІ́МКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* (разм., неадабр.). Не падпісанае аўтарам пісьмо, якое паведамляе пра каго-н. нешта непрыемнае, крыўднае, выкрывае каго-н. і пад.

**АНАНІ́МНЫ**, -ая, -ае. Без указання прозвішча аўтара. *Ананімнае пісьмо. А. мастацкі твор.* || *наз.* **анані́мнасць**, -і, *ж.*

**АНАНІ́МШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм., пагард.). Той, хто піша ананімныя пісьмы. || *ж.* **анані́мшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**АНАНСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Зрабіць (рабіць) анонс.

**АНА́ПЕСТ**, -а, *М* -сце, *м.* Трохскладовая вершаваная стапа з націскам на апошнім, трэцім, складзе. || *прым.* **анапесты́чны**, -ая, -ае. *А. верш.*

**АНАРХІ́ЗМ**, -у, *м.* Грамадска-палітычная плынь, якая адмаўляе любыя формы дзяржаўнай улады і прапаведуе неабмежаваную свабоду асобы. || *прым.* **анархі́чны**, -ая, -ае.

**АНАРХІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік анархізму; член анархічнай арганізацыі. || *ж.* **анархі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **анархі́сцкі**, -ая, -ае.

**АНА́РХІЯ**, -і, *ж.* **1.** Уласцівае анархізму адмаўленне дзяржаўнай улады; безуладдзе; хаос. **2.** Адсутнасць арганізаванага кіравання. *А. вытворчасці.* || *прым.* **анархі́чны**, -ая, -ае.

**АНАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Скласці (складаць) анатацыю чаго-н. || *зак.* таксама **прaанатава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны.

**АНА́ТАМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне анатоміі або прэпаравання трупаў.

**АНАТАМІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго-што.* Прэпараваць, разрэзаць (разразаць) труп для навуковых або судова-медыцынскіх мэт.

**АНАТА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). Кароткая характарыстыка кнігі, артыкула і пад., якая ў асноўным перадае

іх змест, дае ацэнку. *А. падручніка.* || *прым.* **анатацы́йны**, -ая, -ае.

**АНАТО́МІЯ**, -і, *ж.* Навука пра будову жывых арганізмаў; будова арганізма, органа. *А. чалавека. А. мозгу.* || *прым.* **анатамі́чны**, -ая, -ае. *А. атлас.*

**АНА́ФЕМА**, -ы, *ж.* Пракляцце, адлучэнне ад царквы; часам ужыв. як лаянка. *Абвяшчаць анафему. Прэч адсюль, а.!*

**АНАХРАНІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). **1.** Перажытак мінулага. **2.** Памылковае аднясенне з'яў, падзей аднай эпохі да другой; хранічная недакладнасць. || *прым.* **анахрані́чны**, -ая, -ае; *наз.* **анахрані́чнасць**, -і, *ж.*

**АНГАЖЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго-што* (уст.). **1.** Прапанаваць (прапаноўваць) ангажэмент каму-н. **2.** Запрасіць (запрашаць) даму на танец. *А. на кадрылю.*

**АНГАЖЭМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *м.* (уст.). Запрашэнне артыстаў на працу на пэўны тэрмін па дагаворы. *Атрымаць а.*

**АНГА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльнае памяшканне для стаянкі і рамонту самалётаў, верталётаў і пад. || *прым.* **анга́рны**, -ая, -ае.

**АНГІ́НА**, -ы, *ж.* Запаленне слізістай абалонкі зева, міндалін. || *прым.* **ангі́нны**, -ая, -ае.

**АНГЛАМА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які захапляецца ўсім англійскім. || *ж.* **англама́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **англама́нскі**, -ая, -ае.

**АНГЛАФІ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік усяго англійскага. || *ж.* **англафі́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. || *прым.* **англафі́льскі**, -ая, -ае.

**АНГЛАФО́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які ненавідзіць усё англійскае. || *ж.* **англафо́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак. || *прым.* **англафо́бскі**, -ая, -ае.

**АНГЛІКА́НСКІ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да англіканства — пануючай у Англіі разнавіднасці пратэстанцкай рэлігіі. *Англіканская царква. А. святар.*

**АНГЛІЦЫ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Слова ці моўны выраз, запазычаны з англійскай мовы.

**АНГЛІЧА́НЕ**, -ча́н, *адз.* -ча́нін, -а, *м.* Народ, які з'яўляецца асноўным насельніцтвам Вялікабрытаніі. || *ж.* **англіча́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **англі́йскі**, -ая, -ае.

**АНДА́НТЭ** (спец.). **1.** *прысл.* Сярэднепавольна, плаўна (пра тэмп выканання музычнага твора). **2.** *у знач. наз., нескл., н.* Музычны твор або частка яго ў такім тэмпе.

**АНДАРА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Саматканая паласатая або ў клетку спадніца. *Святочны а.* || *прым.* **андара́чны**, -ая, -ае.

**АНДА́ТРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Грызун з каштоўным бліскучым густым футрам, а таксама яго футра. *Шапка з андатры.* || *прым.* **анда́травы**, -ая, -ае.

**АНЕКДАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* анекдот. **2.** Падобны на анекдот, малапраўдзівы. *А. выпадак.* || *наз.* **анекдаты́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**АНЕКДО́Т**, -а, *М* -до́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Кароткае забаўнае, смешнае апавяданне з нечаканай развязкай. **2.** *перан.* Незвычайнае смешнае здарэнне (разм.). *Са мною здарыўся а.* || *прым.* **анекдаты́чны**, -ая, -ае.

**АНЕКСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* Зрабіць (рабіць) анексію чаго-н.

**АНЕ́КСІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* (кніжн.). Насільнае далучэнне якой-н. краіны або яе часткі да іншай дзяржавы. || *прым.* **анексі́йны**, -ая, -ае.

**АНЕМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* анемія; малакроўны. **2.** *перан.* Вялы, бледны, кволы, бяздзейны. *А. выгляд.* || *наз.* **анемі́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**АНЕМІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Малакроўе, змяншэнне колькасці крыві ў арганізме або змяненне яе саставу. || *прым.* **анемі́чны**, -ая, -ае.

**АНЕСТЭЗІЁЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Урач, спецыяліст па анестэзіялогіі.

**АНЕСТЭЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак., што* (спец.). Вы́клікаць (выклікáць) анестэзію, абязболіць (абязбольваць).

**АНЕСТЭЗІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Страта або аслабленне адчувальнасці, успрымальнасці да знешніх раздражненняў пры дапамозе анестэзійных сродкаў; абязбольванне. *Мясцовая а.* || *прым.* **анестэзі́йны**, -ая, -ае. *Анестэзійныя сродкі.*

**АНЕСТЭЗІЯЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Раздзел медыцыны, які займаецца анестэзіяй. || *прым.* **анестэзіялагі́чны**, -ая, -ае.

**АНЁЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У рэлігійных уяўленнях: звышнатуральная істота, служыцель Бога і яго пасланец да людзей (малюецца ў выглядзе крылатага хлопчыка). **2.** Ласкавы зварот да каго-н. (разм.). *А. мой.* ◊ **Дзень анёла** — імяніны. || *памянш.* **анёлак**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* || *прым.* **анёльскі**, -ая, -ае. *А. характар* (вельмі добры).

**АНІ́**, *прысл.* (звычайна з адмоўем). Зусім, ніколькі. *Не баяўся ён смерці ані.*

**АНІВО́ДНЫ**, -ая, -ае (разм.). Ні адзін, зусім ні адзін. *Я не чуў пра цябе аніводнага благога слова.*

**АНІДЗЕ́**, *прысл.* (разм.). Нідзе, зусім нідзе. *А. не бачыў такога харастве.*

**АНІЗВА́ННЯ**, *прысл.* (разм.). Зусім, аніколькі. *А. не спаў у тую трывожную ноч.*

**АНІКО́ЛІ**, *прысл.* (разм.). Зусім ніколі, век. *Такой вайны на зямлі а. не будзе.*

**АНІКО́ЛЬКІ**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *ніколькі.*

**АНІЛІ́Н**, -у, *м.* Арганічнае злучэнне — алеістая атрутная вадкасць без колеру, якая выкарыстоўваецца пры вырабе лякарстваў, фарбавальнікаў і інш. || *прым.* **аніліна́вы**, -ая, -ае. *Анілінавыя фарбы.*

**АНІМАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак, жывапісец або скульптар, які паказвае ў сваіх творах жывёл. || *ж.* **анімалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АНІМІ́ЗМ**, -у, *м.* Сістэма ўяўленняў пра існаванне духа, душы ў чалавека, жывёлы, расліны, прадметаў; адухаўленне сіл і з'яў прыроды. || *прым.* **анімісты́чны**, -ая, -ае.

**АНІ́С**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а. Аднагадовая травяністая эфіраалейная расліна сямейства парасонавых з насеннем, якое мае рэзкі саладкаваты пах. **2.** -у. Гатунак яблыкаў. || *прым.* **ані́савы**, -ая, -ае. *Анісавыя кроплі. А. алей.*

**АНІ́САЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** Тое, што і *аніс* (у 2 знач.). **2.** Гарэлка, настоеная на анісе (у 1 знач.).

**АНІХТО́**, аніко́га, *М* ані аб кі́м, *займ.* (разм.). Зусім ніхто. *Праўды а. не абвергне.*

**АНІЧО́ГА**, *прысл.* (разм.). Зусім нічога. *Перапалоханы а. не мог сказаць.*

**АНІЧУ́ЦЬ**, *прысл.* (разм.). Зусім не. *А. не баліць.*

**АНІШТО́**, анічо́га, *М* ані аб чы́м, *займ.* (разм.). Зусім нішто.

**АНІЯ́К**, *прысл.* (разм.). Ніяк, зусім ніяк. *Не магу а. я з табой пагадзіцца.*

**АНІЯ́КІ**, -ая, -ае (разм.). Зусім ніякі. *Доўга пра яго не было аніякіх звестак.*

**АНКАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які вывучае пухліны, займаецца іх распазнаваннем і лячэннем. || *прым.* **анкалагі́чны**, -ая, -ае. *А. дыспансер.*

**АНКЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -ке́це, *мн.* -ы, -ке́т, *ж.* Апытальны ліст для атрымання якіх-н. звестак пра таго, хто яго запаўняе. *Запоўніць анкету.* || *прым.* **анке́тны**, -ая, -ае.

**АНКЕТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Сабраць (збіраць) якія-н. звесткі шляхам правядзення анкетавання. || *зак.* таксама **праанкетава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. || *наз.* **анкетава́нне**, -я, *н.*

**АНКО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач, спецыяліст па анкалогіі.

**АНО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Электрод з дадатным зарадам; *проціл.* катод. || *прым.* **ано́дны**, -ая, -ае.

**АНО́НС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Папярэдняя аб'ява (пра гастролі, спектаклі, канцэрты, лекцыі і пад.). || *прым.* **ано́нсны**, -ая, -ае.

**АНСА́МБЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Зладжанасць, стройнасць частак адзінага цэлага, а таксама само такое цэлае. *Архітэктурны а.* **2.** Калектыў, адпаведны склад спевакоў, музыкантаў і пад. *А. песні і танца.* || *прым.* **анса́мблевы**, -ая, -ае.

**АНТАГАНІ́ЗМ**, -у, *м.* Непрымірымая супярэчнасць. *А. поглядаў.* || *прым.* **антаганісты́чны**, -ая, -ае.

**АНТАГАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Непрымірымы праціўнік. || *ж.* **антаганí́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **антагані́сцкі**, -ая, -ае.

**АНТАЛАГІ́ЧНЫ**[1] *гл.* анталогія[1].

**АНТАЛАГІ́ЧНЫ**[2] *гл.* анталогія[2].

**АНТАЛО́ГІЯ**[1], -і, *ж.* Зборнік выбраных мастацкіх твораў розных аўтараў. *А. беларускай паэзіі.* ‖ *прым.* **анталагі́чны**, -ая, -ае.

**АНТАЛО́ГІЯ**[2], -і, *ж.* Вучэнне аб быцці, характары і структуры рэчаіснасці. ‖ *прым.* **анталагі́чны**, -ая, -ае.

**АНТО́НАЎКА**, -і, *ДМ*, -ўцы, *мн.* -і, -навак, *ж.* Гатунак позніх кіслых яблыкаў.

**АНТО́НІМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У мовазнаўстве: слова, процілеглае па знач. іншаму слову, напр.: *праўда — хлусня, дабро — зло* і пад. ‖ *прым.* **антанімі́чны**, -ая, -ае.

**АНТРА́КТ**, -у, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Кароткі перапынак паміж дзеямі спектакля ці аддзяленнямі канцэрта. **2.** Невялікі музычны твор для выканання паміж дзвюма дзеямі оперы, п'есы. ‖ *прым.* **антра́ктны**, -ая, -ае.

**АНТРАПАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб біялагічнай прыродзе чалавека. ‖ *прым.* **антрапалагі́чны**, -ая, -ае.

**АНТРАПАМАРФІ́ЗМ**, -у, *м.* (спец.). Перанясенне псіхалагічных уласцівасцей чалавека на з'явы прыроды, жывёл, прадметы, а таксама ўяўленне багоў у выглядзе людзей. ‖ *прым.* **антрапамарфі́чны**, -ая, -ае.

**АНТРАПАНІ́МІКА**, -і, *ДМ* -міцы, *ж.* Раздзел анамастыкі, які вывучае антрапонімы, заканамернасці іх узнікнення, развіцця і функцыянавання. ‖ *прым.* **антрапанімі́чны**, -ая, -ае.

**АНТРАПАНІ́МІЯ**, -і, *ж.* Сукупнасць антрапонімаў. ‖ *прым.* **антрапанімі́чны**, -ая, -ае.

**АНТРАПО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па антрапалогіі.

**АНТРАПО́НІМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Любое ўласнае імя, якое можа мець чалавек. ‖ *прым.* **антрапанімі́чны**, -ая, -ае.

**АНТРАЦЫ́Т**, -у, *М* -цы́це, *м.* Лепшы гатунак каменнага вугалю, які мае чорны колер, яркі бляск, вызначаецца вялікай цеплаправоднасцю. ‖ *прым.* **антрацы́таві**, -ая, -ае *і* **антрацы́тны**, -ая, -ае.

**АНТРАША́**, *нескл.*, *н.* Балетнае па, лёгкі скачок уверх, у час якога танцор ударае некалькі разоў нагой аб нагу. ◊ **Выкідваць антраша** — рабіць мудрагелістыя рухі нагамі (разм.).

**АНТРЭКО́Т**, -у, *М* -ко́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Міжрэбравая частка ялавічыны; адбіўная катлета з міжрэбернай часткі ялавічыны. ‖ *прым.* **антрэко́тны**, -ая, -ае.

**АНТРЭПРЭНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў *м.* Прыватны тэатральны прадпрыемец. ‖ *прым.* **антрэпрэнёрскі**, -ая, -яе.

**АНТРЭСО́ЛІ**, -ей *і* -яў, *адз.* -со́ль, -і, *ж.* **1.** Верхні паўпаверх дома. **2.** Род балкона ўнутры высокага памяшкання, звычайна ў выглядзе галерэі. **3.** Насціл пад столлю для захоўвання рэчаў. ‖ *прым.* **антрэсо́льны**, -ая, -ае.

**АНТЫАЛКАГО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Супрацьалкагольны, накіраваны супраць алкагалізму. *Антыалкагольная прапаганда.*

**АНТЫБІЁТЫКІ**, -аў, *адз.* антыбіётык, -а, *м.* Рэчывы біялагічнага паходжання, здольныя падаўляць жыццядзейнасць хваробатворных мікраарганізмаў. ‖ *прым.* **антыбія́ты́чны**, -ая, -ае.

**АНТЫГІСТАРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які супярэчыць гісторыі, прынцыпам гістарызму.

**АНТЫКВА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аматар, збіральнік або прадавец антыкварных прадметаў.

**АНТЫКВА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Старадаўні і каштоўны. *Антыкварная ваза.* **2.** Які мае адносіны да гандлю старадаўнімі рэчамі. *А. магазін.* ‖ *наз.* **антыква́рнасць**, -і, *ж.*

**АНТЫКВАРЫЯ́Т**, -у, *М* -рыя́це, *м., зб.* Антыкварныя рэчы, а таксама крама, у якой яны прадаюцца.

**АНТЫЛО́ПА**, -ы, *ж.* Жвачная жывёліна атрада парнакапытных.

**АНТЫЛО́ПЫ**, -ло́п, *адз.* антыло́па, -ы, *ж.* Агульная назва розных відаў парнакапытных жвачных млекакормячых сямейства пустарогіх (сарны, сайгакі, джэйраны і пад.). ‖ *прым.* **антыло́пны**, -ая, -ае.

**АНТЫМО́НІЯ**, -і, *ж.* У выразе: **разводзіць антымоніі** (разм., жарт.) — займацца глупствам, пустой балбатнёй.

**АНТЫПАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Непрыемны, агідны, які выклікае антыпатыю. *Ён мне а.* ‖ *наз.* **антыпаты́чнасць**, -і, *ж.*

**АНТЫПА́ТЫЯ**, -і, *ж.* Пачуццё непрыязнасці да каго-н.

**АНТЫПО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м., чый* або *каму* (кніжн.). Чалавек, процілеглы каму-н. па перакананнях, густах, уласцівасцях. ‖ *прым.* **антыпо́дны**, -ая, -ае.

**АНТЫРЭЛІГІ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Накіраваны супраць рэлігіі. *Антырэлігійная прапаганда.*

**АНТЫСАНІТА́РНЫ**, -ая, -ае. Які супярэчыць патрабаванням санітарыі, брудны і шкодны для здароўя. *Антысанітарныя ўмовы.*

**АНТЫСЕМІ́Т**, -а, *М* -мі́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які непрыязна, варожа ставіцца да яўрэяў. ‖ *ж.* **антысемі́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АНТЫСЕМІТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Нацыянальная нянавісць да яўрэяў. ‖ *прым.* **антысемі́цкі**, -ая, -ае.

**АНТЫСЕ́ПТЫК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Абеззаражвальны сродак. ‖ *прым.* **антысепты́чны**, -ая, -ае.

**АНТЫСЕ́ПТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* (спец.). **1.** Абеззаражванне ран, запалёных тканак. **2.** *зб.* Абеззаражвальныя сродкі. ‖ *прым.* **антысепты́чны**, -ая, -ае.

**АНТЫСТА́ТЫК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Рэчыва, якое паніжае статычную электрызацыю хімічных валокнаў, пластмасы і інш. ‖ *прым.* **антыстаты́чны**, -ая, -ае. *Антыстатычная эмульсія.*

**АНТЫТЭ́ЗА**, -ы, *ж.* (кніжн.). **1.** Супрацьпастаўленне, процілегласць. **2.** Стылістычны прыём, заснаваны на супрацьпастаўленні процілеглых вобразаў, паняццяў.

**АНТЫТЭ́ЗІС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). У логіцы: суджэнне, якое супрацьпастаўляецца другому суджэнню (тэзісу).

**АНТЫФАШЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вораг фашызму, барацьбіт супраць фашызму. ‖ *ж.* **антыфашы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АНТЫФАШЫ́СЦКІ**, -ая, -ае. Накіраваны супраць фашызму. *А. рух.*

**АНТЫ́ХРЫСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У хрысціянскай рэлігіі: галоўны праціўнік, антыпод Хрыста. **2.** Ужыв. як лаянкавае слова (разм., уст.).

**АНТЫЦЕ́ЛЫ**, -це́л, *адз.* антыце́ла, -а, *н.* (спец.). Складаныя бялкі — рэчывы, якія ўтвараюцца ў арганізме пры ўвядзенні ў яго чужародных бялкоў, бактэрый і нейтралізуюць іх шкоднае дзеянне.

**АНТЫЦЫКЛО́Н**, -у, *м.* (спец.). Зона ўстойлівага павышанага атмасфернага ціску, якая знаходзіцца паміж цыклонамі і характарызуецца ясным, сонечным надвор'ем. ‖ *прым.* **антыцыкло́нны**, -ая, -ае, **антыцыклані́чны**, -ая, -ае *і* **антыцыклана́льны**, -ая, -ае.

**АНТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да гісторыі і культуры старажытных грэкаў і рымлян. *Антычная літаратура. Антычнае мастацтва.* ‖ *наз.* **анты́чнасць**, -і, *ж.*

**АНТЭ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -тэ́н, *ж.* Праваднік або сістэма праваднікоў, частка радыё- і тэлевізійнай установкі, якая служыць для выпраменьвання радыёхваль пры перадачы або для іх улоўлівання ў час прыёму. *Тэлевізійная а.* ‖ *прым.* **антэ́нны**, -ая, -ае (спец.).

**АНУ́**, *выкл.* (разм.). **1.** Ужыв. для выражэння закліку або прымушэння да дзеяння. *Ану, за косы ды на лугі!* **2.** (*з Р у спалучэнні з займ. 2 і 3 ас.*). Адпавядае словам «адвяжыся», «адстань» і пад. *Ану цябе, Максім!*

**АНУЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *зак.* і *незак., што.* Аб'явіць (аб'яўляць) несапраўдным, скасаваць (касаваць). *А. дагавор.* ‖ *наз.* **анулява́нне**, -я, *н. і* **ануля́цыя**, -і, *ж.*

**АНУ́ЧА**, -ы, *мн.* -ы, ану́ч, *ж.* **1.** Кавалак якой-н. тканіны (звычайна старой). *А. для мыцця падлогі.* **2.** Парванае, паношанае, старое адзенне (разм.). *Сабралася многа розных ануч.* **3.** Кавалак тканіны для абгортвання ног. **4.** *перан.* Бязвольны, бесхарактарны чалавек. *А., а не хлапец.* ‖ *памянш.* **ану́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 і 3 знач.). ‖ *прым.* **ану́чны**, -ая, -ае (да 1—3 знач.).

**АНУ́ЧНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Скупшчыца ануч, рыззя (уст.). ‖ *м.* **ану́чнік**, -а, *мн.* -і, -аў.

**АНУ́ЧЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -чын, *ж.* (разм.). Тое, што і *ануча* (у 1—3 знач.).

**АНФА́С**, *прысл.* Тварам да таго, хто глядзіць. *Сфатаграфавацца а.* ‖ *прым.* **анфа́сны**, -ая, -ае.

**АНФІЛА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ла́д, *ж.* Доўгі скразны рад пакояў у грамад-

скіх будынках, палацах, дзе дзверы размешчаны на адной прамой лініі. ‖ *прым.* **анфіла́дны**, -ая, -ае.

**АНЧА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Трапічнае паўднёваазіяцкае дрэва з сямейства тутавых, якое ўтрымлівае атруту. ‖ *прым.* **анча́рны**, -ая, -ае.

**АНЧО́УС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дробная марская рыба з роду селядцоў; хамса. *Алівы з анчоусамі.* ‖ *прым.* **анчо́усны**, -ая, -ае.

**АНШЛА́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Аб'ява аб тым, што ўсе білеты (на спектакль, канцэрт і пад.) прададзены. **2.** Вялікі поспех (перан.). *Спектакль прайшоў з аншлагам.* **3.** Буйны загаловак у газеце (спец.). *А. на ўсю паласу.* ‖ *прым.* **аншла́гавы**, -ая, -ае.

**АНЯМЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаў нямым, страціў здольнасць гаварыць. **2.** Які стаў нерухомым. *А. стан.* **3.** Ціхі, пазбаўлены якіх-н. гукаў. *Анямелае поле.* **4.** Які страціў адчувальнасць, здранцвелы. *Анямелыя ногі.* ‖ *наз.* **аняме́ласць**, -і, *ж.*

**АНЯМЕ́ЦЬ** *гл.* нямець.

**АНЯМЕ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што.* Зрабіць падобным на немцаў па мове, звычаях, прымусіць засвоіць культуру немцаў. ‖ *незак.* **аняме́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **аняме́чыцца**, -чуся, -чышся, -чыцца; *незак.* **аняме́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **аняме́чанне**, -я, *н.*

**АО́РТА**, -ы, *ДМ* -рце, *мн.* -ы, аорт *і* -аў, *ж.* Самая буйная, галоўная артэрыя, якая жывіць артэрыяльнай крывёю органы цела. ‖ *прым.* **ао́ртавы**, -ая, -ае, **ао́ртны**, -ая, -ае *і* **аарта́льны**, -ая, -ае.

**АПАВІ́ЦЬ**, апаўю́, апаўе́ш, апаўе́; апаўём, апаўяце́, апаўю́ць; апаві́ў, -віла́, -ло́; апаві́ты; *зак., каго-што.* **1.** Абвіць, абматаць каго-, што-н. чым-н. *Стужка апавіла галаву дзяўчыны.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Пакрыць з усіх бакоў, ахутаць (дымам, туманам і пад.), ахапіць. *Лагчыну і лес апавіў туман.* **3.** *перан.* Ахапіць, абняць. *Лёгкі сум апавіў сэрца.* ‖ *незак.* **апавіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **апаві́цца**, апаўю́ся, апаўе́шся, апаўе́цца; апаўёмся, апаўяце́ся, апаўю́цца; апаві́ўся, -віла́ся, -ло́ся; *незак.* **апавіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АПАВЯ́Д** *гл.* аповед.

**АПАВЯДА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто апавядае, расказвае што-н. **2.** Аўтар апавяданняў, пісьменнік. ‖ *ж.* **апавяда́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **апавяда́льніцкі**, -ая, -ае.

**АПАВЯДА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які апавядае што-н., апісвае якія-н. падзеі; спакойны, эпічны. *А. жанр.* ○ **Апавядальны сказ** — сказ, у якім даецца паведамленне пра тыя ці іншыя з'явы, падзеі, факты, іх прыметы ці адказ на пытанне. ‖ *наз.* **апавяда́льнасць**, -і, *ж.*

**АПАВЯДА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Невялікі мастацкі эпічны твор як жанр. *Зборнік апавяданняў.* **2.** Славеснае паведамленне пра якія-н. падзеі, з'явы. *Хлапчукоў захаплялі апавяданні камандзіраў пра ваенныя паходы.*

**АПАВЯДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., аб чым.* Расказваць, паведамляць аб чым-н.

**АПАВЯСЦІ́ЦЬ**, -вяшчу́, -вясці́ш, -вясці́ць; -вясці́м, -весціце́, -вясця́ць; -ве́шчаны; *зак., каго-што* (афіц.). Паведаміць аб чым-н., давесці да ведама каго-н. *А. усіх аб сходзе.* ‖ *незак.* **апавяшча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **апавяшчэ́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **апавяшча́льны**, -ая, -ае.

**АПАВЯШЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто апавяшчае, аб'яўляе што-н. **2.** Традыцыйны персанаж класічных трагедый, які апавяшчае аб падзеях за сцэнай (уст.). ‖ *ж.* **апавяшча́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **апавяшча́льніцкі**, -ая, -ае.

**АПАГА́НІЦЬ**, *гл.* паганіць.

**АПАГЕ́Й**, -я, *м.* **1.** Пункт арбіты Месяца або штучнага спадарожніка Зямлі, найбольш аддалены ад Зямлі; *проціл.* перыгей (спец.). **2.** *перан.* Найвышэйшая ступень, росквіт чаго-н. (кніжн.). *У апагеі славы.* ‖ *прым.* **апаге́йны**, -ая, -ае.

**АПАГО́ДЗІЦЦА**, -дзіцца; *безас.; зак.* (разм.). Тое, што і *распагодзіцца. К вечару апагодзілася.* ‖ *незак.* **апаго́джвацца**, -аецца.

**АПА́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** *гл.* апасці. **2.** *зб.* Плады, якія апалі ад ветру, у час навальніцы і пад. *Збіраць а.*

**АПАДА́ЦЬ** *гл.* апасці.

**АПА́ДКІ**, -аў. **1.** *мн.* Атмасферная вільгаць, якая выпадае на зямлю ў выглядзе дажджу, снегу і пад. **2.** *адз.* апа́дак, -дка, *м.* Тое, што і *апад. Яблыкі-ападкі.* ‖ *прым.* **апа́дкавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**АПАЗІ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Супрацьдзеянне, супраціўленне (кніжн.). *Быць у апазіцыі каму-, чаму-н.* (будучы нязгодным з чымі-н. поглядамі і дзеяннямі, супрацьдзейнічаць ім). **2.** Група людзей унутры якога-н. грамадства, арганізацыі, партыі і пад., якая вядзе палітыку супрацьдзеяння, супраціўлення большасці. *Парламенцкая а.* ‖ *прым.* **апазіцы́йны**, -ая, -ае.

**АПАЗІЦЫЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік, прыхільнік апазіцыі (у 2 знач.). ‖ *ж.* **апазіцыяне́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **апазіцыяне́рскі**, -ая, -ае.

**АПАЗНАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для апазнавання. *А. знак.*

**АПАЗНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што* (афіц.). **1.** Пазнаць па якіх-н. прыметах, адзнаках. *А. у знаёмых брата былых суседзяў. А. свае рэчы.* **2.** Устанавіць тоеснасць асобы або рэчы пры судовым следстве. *А. мёртвага.* ‖ *незак.* **апазнава́ць**, -наю́, -нае́ш, -нае́; -наём, -наяце́, -наю́ць; *наз.* **апазнава́нне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **апазна́нне**, -я, *н.*

**АПАЗНЕ́ННЕ**, -я, *н.* Тое, што і *спазненне. Пачаць сход з апазненнем.*

**АПАЗНІ́ЦЦА**, апазню́ся, апо́знішся, апо́зніцца; *зак.* Тое, што і *спазніцца. А. на работу.* ‖ *незак.* **апазня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**АПАІ́ЦЬ**, апаю́, апо́іш, апо́іць; апо́ены; *зак., каго (што).* **1.** Празмерна напаіць, даць многа вады, зрабіўшы гэтым шкоду. *А. коней.* **2.** Атруціць пітвом (уст.). ‖ *незак.* **апо́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **апо́йванне**, -я, *н. і* **апо́й**, -ю, *м.*

**АПА́К**, -у, *м.* Гатунак белай гліны, што ідзе на выраб фаянсу. **2.** Посуд, выраблены з такой гліны. ‖ *прым.* **апако́вы**, -ая, -ае.

**АПАКА́ЛІПСІС**, -а, *м.* Адна з кніг Новага Запавету, якая змяшчае містычныя прароцтвы пра канец свету. ‖ *прым.* **апакаліпсі́чны**, -ая, -ае *і* **апакаліпты́чны**, -ая, -ае.

**АПАКРЫФІ́ЧНЫ** *гл.* апокрыф.

**АПА́Л**[1], -у, *м.* **1.** *гл.* апаліць. **2.** Паліва (дровы, драўнінныя адходы, торф і пад.). **3.** Апрацоўка гліняных вырабаў высокай тэмпературай.

**АПА́Л**[2], -у, *м.* Мінерал, бледны шклопадобны камень, некаторыя гатункі якога лічацца каштоўнымі. *Пярсцёнак з белым апалам.* ‖ *прым.* **апа́лавы**, -ая, -ае.

**АПА́ЛА**, -ы, *ж.* **1.** У царскай Расіі: няміласць, гнеў цара да каго-н., а таксама кара таму, хто трапіў у няміласць. *Быць у апале.* **2.** *перан.* Тое, што і *няміласць. Ён у апале ў кіраўнікоў.*

**АПАЛАГЕ́Т**, -а, *М* -ге́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Актыўны абаронца якога-н. вучэння, ідэі, ладу. ‖ *прым.* **апалагеты́чны**, -ая, -ае.

**АПАЛАСКА́ЦЬ**, -лашчу́, -ло́шчаш, -ло́шча; -лашчы́; -луска́ны; *зак., што* (разм.). Тое, што і *апаласнуць*; злёгку абмыць. ‖ *незак.* **апало́скваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АПАЛАСНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што.* Абмыць, злёгку абдаўшы вадою. *А. талерку.*

**АПАЛА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). Ачысціць ад мякіны зерне, крупы пры дапамозе апалушак. *А. ячмень.* ‖ *незак.* **пала́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АПАЛІТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Абыякавасць да пытанняў палітыкі, ухіленне ад удзелу ў грамадска-палітычным жыцці. ‖ *прым.* **апаліты́чны**, -ая, -ае.

**АПАЛІТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* апалітызм. **2.** Які ўхіляецца ад удзелу ў грамадска-палітычным жыцці, абыякавы да пытанняў і праблем палітыкі. ‖ *наз.* **апаліты́чнасць**, -і, *ж.*

**АПАЛІ́ЦЬ**, апалю́, апа́ліш, апа́ліць; апа́лены; *зак., што.* **1.** Тое, што і *абпаліць. Маланка апаліла дрэва.* **2.** Нагрэць (палівам), зрабіць цёплым. *А. кватэру.* ‖ *незак.* **апа́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **апа́льванне**, -я, *н. і* **апа́л**, -у, *м.*

**АПАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Непамернае ўсхваленне, абарона каго-, чаго-н. ‖ *прым.* **апалагеты́чны**, -ая, -ае.

**АПАЛО́НІК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Хвастатая лічынка жабы. ‖ *прым.* **апало́нікавы**, -ая, -ае.

**АПАЛО́НІК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чарпак, вялікая лыжка, якой разліваюць вадкую страву.

**АПАЛО́ЦЬ**, апалю́, апо́леш, апо́ле; апалі́; апо́латы; *зак., што.* Полючы, ачысціць ад пустазелля. *А. грады.* || *незак.* **апо́лваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АПА́ЛУБІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., што* (спец.). Абабіць, абкласці чым-н. знадворку якое-н. збудаванне. || *наз.* **апа́лубка**, -і, *ДМ* -бцы, *ж.* || *прым.* **апа́лубачны**, -ая, -ае. *Апалубачныя работы.*

**АПА́ЛУБКА**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* (спец.). **1.** *гл.* апалубіць. **2.** Драўляная ці металічная форма, якая ўжыв. пры бетонных і жалезабетонных збудаваннях і знімаецца пасля зацвярдзення бетону. *Стальная а.*

**АПАЛУ́ШКІ**, -шак. Невялікія начоўкі для ачысткі зерня ў хатніх умовах.

**АПАЛЧЭ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Чалавек, які ўступіў у апалчэнне, удзельнік, баец апалчэння. || *ж.* **апалчэ́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **апалчэ́нскі**, -ая, -ае.

**АПАЛЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Ваеннае фарміраванне, якое ствараецца ў час надзвычайных абставін для дапамогі рэгулярнай арміі на добраахвотных пачатках з асоб, якія вызвалены ад вайсковай службы. || *прым.* **апалчэ́нскі**, -ая, -ае.

**АПА́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які асыпаўся, апаў з дрэў і пад. *Апалае лісце.* **2.** Які нізка апусціўся, абвіс. *Апалыя галіны яблынь.* **3.** Схуднелы. *Апалыя шчокі.* **4.** *перан.* Які пагоршыўся, сапсаваўся. *А. настрой.*

**АПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ў апале. *А. баярын.*

**АПА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто паліць печы ў службовым памяшканні або працуе ў кацельнай. || *ж.* **апа́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. || *прым.* **апа́льшчыцкі**, -ая, -ае.

**АПАЛЯ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што.* Зрабіць падобным на палякаў па мове, звычаях і пад., прымусіць засвоіць культуру паляка. || *незак.* **апаля́чваць**, -аю, -аеш, -ае. || *звар.* **апаля́чыцца**, -чуся, -чышся, -чыцца; *незак.* **апаля́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. || *наз.* **апаля́чанне**, -я, *н.*

**АПА́МЯТАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Апрытомнець, прыйсці да памяці; зноў пачаць спакойна разважаць і дзейнічаць. *Апаматаўся ён у шпіталі.* **2.** Адумаўшыся, зразумець сваю памылку. *Апамятайся, што ты гаворыш!* **3.** Агледзецца, заўважыць. *Мы і а. не паспелі, як мінуўся наш адпачынак.*

**АПАНАВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Ахапіць, авалодаць (пра фізічны стан, настрой і пад.). *Жанчыну апанаваў страх.* **2.** Напасці ў вялікай колькасці, акружыць, накінуцца. *Яго апанавалі сабакі.* **3.** З'явіцца ў вялікай колькасці (разм.). *Справы апанавалі.* || *незак.* **апано́ўваць**, -ае.

**АПАНЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** (кніжн.). Той, хто апаніруе каму-н. *Афіцыйны а. на абароне дысертацыі.* **2.** Той, хто наогул выступае як праціўнік у спрэчцы. || *ж.* **апане́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (разм.). || *прым.* **апане́нцкі**, -ая, -ае.

**АПАНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* (кніжн.). Выступаць з крытычным разборам чаго-н. на дыспуце, з абвяржэннем чыіх-н. доказаў, палажэнняў у час абароны дысертацыі і пад. *А. дысертанту.*

**АПАНТА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Нястрымны, захоплены чым-н. (пачуццямі, думкамі, імкненнямі і пад.). **2.** *у знач. наз.* **апанта́ны**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Душэўна ўзрушаны; шалёны. *Носіцца, як а.* || *наз.* **апанта́насць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**АПАНУ́РАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Зрабіцца панурым, змрочным. *Хлопец апанураў, заныў.*

**АПАНЧА́**, -ы́, *мн.* -ы́, -э́й, *ж.* Старадаўняе верхняе адзенне ў выглядзе доўгага шырокага плашча. || *прым.* **апанчо́вы**, -ая, -ае.

**АПАПЛЕ́КСІЯ**, -і, *ж.* Кровазліццё ў які-н. орган або закупорка мазгавых сасудаў, што выклікае раптоўную страту прытомнасці і параліч; інсульт. || *прым.* **апаплексі́чны**, -ая, -ае. *Апаплексічны ўдар.*

**АПАРАЖНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ро́жніцца; *зак.* (разм.). Стаць пустым, парожнім. *Бочка апаражнілася.* || *незак.* **апаражня́цца**, -я́ецца.

**АПАРАЖНІ́ЦЬ**, -ражню́, -ро́жніш, -ро́жніць; -ро́жнены; *зак., што.* Зрабіць пустым, парожнім. *А. вядро.* || *незак.* **апаражня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АПАРАСІ́ЦЦА** *гл.* парасіцца.

**АПАРА́Т**, -а *і* -у, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Спецыяльны прыбор, механічнае прыстасаванне. *Тэлефонны а. Касмічны а.* **2.** -у. Сукупнасць органаў, якія выконваюць якую-н. асобную функцыю ў арганізме (спец.). *Стрававальны а.* **3.** -у. Сукупнасць дзяржаўных устаноў, а таксама супрацоўнікаў, якія абслугоўваюць пэўную галіну кіраўніцтва, гаспадаркі. *Дзяржаўны а. Працаздольны а.* || *прым.* **апара́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**АПАРА́ТНАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Памяшканне, у якім устаноўлена апаратура.

**АПАРАТУ́РА**, -ы, *ж., зб.* Сукупнасць апаратаў для якой-н. работы; абсталяванне лабараторыі, цэха і інш. *Набыць новую апаратуру.* || *прым.* **апарату́рны**, -ая, -ае.

**АПАРА́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст, які кіруе апаратамі (у 1 знач.). **2.** Работнік апарату (у 3 знач.; разм.). || *ж.* **апара́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц (да 1 знач.).

**АПАРО́С**, -у, *м.* (спец.). Роды ў свінні і самак іншых жывёл (вожыка, барсука).

**АПАРТАМЕ́НТЫ**, -аў, *адз.* апартаме́нт, -а, *М* -нце, *м.* Вялікія раскошныя пакоі; кватэра. || *прым.* **апартаме́нтны**, -ая, -ае.

**АПАРТУНІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Яўныя і больш тонкія формы падману, пэўнае недагаворванне, утойванне з боку больш інфармаванага або дасведчанага ўдзельніка размовы, што выкарыстоўваецца з карыслівымі мэтамі. **2.** Прыстасавальніцтва, згодніцтва, беспрынцыповасць у палітычнай барацьбе. || *прым.* **апартуністы́чны**, -ая, -ае.

**АПАРТУНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік апартунізму. || *ж.* **апартуні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **апартуні́сцкі**, -ая, -ае.

**АПАРТЭ́ІД**, -у, *М* -дзе, *м.* Крайняя форма расавай дыскрымінацыі якой-н. групы насельніцтва аж да тэрытарыяльнай ізаляцыі яе. *Ахвяры апартэіду.*

**АПАРШЫ́ВЕЦЬ** *гл.* паршывець.

**АПА́РЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -рын, *ж.* (разм.). Паглыбленае месца на балоце, якое не зарасло травою ці мохам; акно. *Уваліцца ў апарыну.*

**АПА́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* Пашкодзіць сабе скуру варам, гарачай парай. || *незак.* **апа́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АПА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго-што.* **1.** Пашкодзіць скуру варам, гарачай парай. *А. рукі.* **2.** Абліць варам. *А. сечку.* || *незак.* **апа́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АПАСА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак., каго-чаго* або *з інф.* Тое, што і *баяцца* (у 1 знач.); сцерагчыся чаго-н. *А. праступы.*

**АПА́СКА**, -і, *ДМ* апа́сцы, *ж.* (разм.). Асцярожнасць у прадбачанні небяспекі; боязь, страх. *Гаварыць з апаскай.*

**АПА́СЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які дзейнічае з апаскай, асцярожна. *А. воін.* **2.** Недаверлівы, насцярожаны. *А. позірк.* || *наз.* **апа́слівасць**, -і, *ж.*

**АПАСРО́ДКАВАНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Дадзены не непасрэдна, а пры дапамозе чаго-н. іншага. *Веды, апасродкаваныя вопытам.*

**АПАСТЫ́ЛЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* (разм.). Апрыкрацца; зрабіцца нямілым, невыносным, вельмі надакучыць.

**АПАСТЫ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які вельмі апрыкраў, надакучыў; зрабіўся нямілым, невыносным. *Апастылая атмасфера.*

**АПАСТЫЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак., з кім* і *без дап.* (разм.). Сварыцца, лаяцца; задзірацца. *Няварта а. з людзьмі.*

**АПАСТЭРЫЕ́РЫ**, *прысл.* (кніжн.). На падставе вопыту, вопытных дадзеных; *проціл.* апрыёры. || *прым.* **апастэрыё́рны**, -ая, -ае; *наз.* **апастэрыё́рнасць**, -і, *ж.*

**АПА́СЦІ**, -аду́, -адзе́ш, -адзе́; -адзём, -адзяце́, -аду́ць; -адзі́; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Асыпацца, адваліцца (з дрэў, кустоў). *Лісце ўсё апала.* **2.** Паменшыцца ў аб'ёме, панізіцца ўзроўнем, спасці. *Вада за ноч на рацэ апала. Чалавек схуднеў, шчокі апалі.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Апусціцца, упасці, звіснуць. *Пасмы валасоў апалі на лоб.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Асесці, пакрыць якую-н. паверхню. *Апалі росы на лугах.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Прыйсці, апусціцца. *Ціхі вечар апаў на зямлю.* **6.** (*1 і 2

*ас. не ўжыв.), перан.* Пагоршыцца, сапсавацца. *Апаў настрой.* **7.** *перан.* Знікнуць, прапасці. *Няхай смутак ападзе!* ‖ *незак.* **ападáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **апáд**, -у, *М* -дзе, *м.*

**АПАТЫ́Т**, -у, *М* -тыце, *м.* Мінерал, з якога вырабляюць фасфатныя ўгнаенні. ‖ *прым.* **апаты́тавы**, -ая, -ае. *Апатытавая руда.*

**АПАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Схільны да апатыі, поўны апатыі, абыякавы. *А. чалавек.* ‖ *наз.* **апаты́чнасць**, -і, *ж.*

**АПА́ТЫЯ**, -і, *ж.* Стан душэўнай абыякавасці, раўнадушнасці да ўсяго. ‖ *прым.* **апаты́чны**, -ая, -ае.

**АПАЎДНІ́ і АПАЎДНЯ́**, *прысл.* У сярэдзіне дня. *А. пачаўся дождж.*

**АПАЎЗЦІ́**, -зý, -зéш, -зé; -зём, -зяцé, -зýць; апóўз, апаўзлá, -лó; -зí; *зак.* **1.** Спаўзці ўніз (ад цяжару), асесці. *Апаўзла зямля на беразе ракі.* **2.** Тое, што і *абпаўзці.* ‖ *незак.* **апаўзáць**, -áю, -áеш, -áе *і* **апóўзваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **апаўзáнне**, -я, *н.*

**АПАЎНО́ЧЫ**, тое, што і *апоўначы.*

**АПАФЕО́З**, -у, *м.* **1.** Праслаўленне, узвелічэнне каго-, чаго-н. (кніжн.). **2.** Урачыстая, заключная масавая сцэна некаторых тэатральных спектакляў (спец.). ‖ *прым.* **апафеóзны**, -ая, -ае.

**АПАШЛЕ́ННЕ** *гл.* апошліць.

**АПАШЛЕ́ЦЬ** *гл.* пашлець.

**АПАШЛЯ́ЦЬ** *гл.* апошліць.

**АПАЯСА́ЦЬ**, апаяшý, апая́шаш, апая́ша; апаяшы́; апаясáны; *зак.* **1.** *каго-што.* Надзець на каго-н. пояс, падперазаць, **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан., што.* Працягнуцца вакол чаго-н., абкружыць сабой. *Лес апаясаў вёску.* ‖ *незак.* **апая́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **апаясáцца**, апаяшýся, апая́шашся, апая́шацца; апаяшы́ся (да 1 знач.); *незак.* **апая́свацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АПЕ́КА**, -і, *ДМ* апéцы, *ж.* **1.** Нагляд за недзеяздольнымі асобамі (малалетнімі, хворымі і пад.), клопаты аб іх выхаванні, правах і пад. *Устанавіць апеку над малалетнімі.* **2.** *зб.* Установы або асобы, на якіх ускладзены такі нагляд. **3.** Клопаты, утрыманне, нагляд, кантроль. *Бацькоўская а. Выйсці з-пад апекі.*

**АПЕКАВА́ЦЬ**, апякýю, апякýеш, апякýе; апякýй; *незак., каго (што).* **1.** Ажыццяўляць апеку (у 1 знач.) над кім-н. *А. дзяцей. А. сірот.* **2.** Клапаціцца, наглядаць за кім-н. *А. малых сясцёр.*

**АПЕЛЬСІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Цытрусавае дрэва, а таксама сакавіты пахучы кісла-салодкі плод гэтага дрэва з мяккай лупінай аранжавага колеру. ‖ *прым.* **апельсі́навы**, -ая, -ае. *А. сок.*

**АПЕЛЯВА́ЦЬ**, -люю, -люеш, -люе; -люй; *зак.* і *незак.* **1.** Падáць (падаваць) апеляцыю (у 1 знач.; спец.). **2.** *да каго-чаго.* Звярнуцца (звяртацца) за падтрымкай і пад. (кніжн.). *А. да грамадскасці.*

**АПЕЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Абскарджанне рашэння суда ў больш высокай судовай інстанцыі з мэтай перагляду справы (спец.). **2.** Форма афіцыйнага абскарджання рашэння атэстацыйнай камісіі па выніках экзаменаў і пад. з мэтай перагляду ацэнкі. *Падаць а.* **3.** *перан.* Зварот з просьбай, з заклікам аб чым-н. (кніжн.). *А. да грамадскай думкі.* ‖ *прым.* **апеляцы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *А. суд.*

**АПЕ́НДЫКС**, -а, *м.* (спец.). Адростак сляпой кішкі. ‖ *прым.* **апéндыксны**, -ая, -ае.

**АПЕНДЫЦЫ́Т**, -у, *М* -цыце, *м.* Запаленне апендыкса. ‖ *прым.* **апендыцы́тны**, -ая, -ае.

**АПЕ́НЬКА**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* Жаўтаваты ядомы грыб, які расце групамі каля пнёў, на пнях дрэў, каля карэнняў.

**АПЕРА́БЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можа быць апераваны, паддаецца аперацыі[1]. *А. хворы.* ‖ *наз.* **аперáбельнасць**, -і, *ж.*

**АПЕРАДЖА́ЦЬ** *гл.* апярэдзіць.

**АПЕРАЗА́ЦЦА**, аперажýся, апярáжашся, апярáжацца; аперажы́ся; *зак.* (разм.). Падперазацца поясам, дзягай. ‖ *незак.* **апярáзвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АПЕРАЗА́ЦЬ**, аперажý, апярáжаш, апярáжа; аперажы́; апярáзаны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Надзець пояс, дзягу, апаясаць каго-, што-н. **2.** *перан.* Абкружыць, абнесці, абгарадзіць што-н. чым-н. *Горад аперазалі земляным валам.* **3.** *перан.* Моцна ўдарыць, агрэць. *А. палкай па спіне.* ‖ *незак.* **апярáзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АПЕРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Асоба, якая выконвае якія-н. вытворчыя працэсы, аперацыі (назва ўваходзіць таксама ў складаныя словы, напр. *гукааператар*). **2.** Спецыяліст, які робіць здымкі кінакарціны; кінааператар. ‖ *прым.* **аперáтарскі**, -ая, -ае.

**АПЕРАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Здольны хутка і правільна выконваць практычныя задачы; дзейсны. *Аператыўнае кіраўніцтва.* ‖ *наз.* **аператы́ўнасць**, -і, *ж.*

**АПЕРАЦЫ́ЙНАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Памяшканне, дзе робяцца аперацыі[1]. *А. хірургічнага аддзялення бальніцы.*

**АПЕРА́ЦЫЯ**[1], -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Хірургічная лячэбная дапамога, механічнае ўздзеянне на тканкі і органы цела (ускрыццё, выдаленне, перасадка і пад.) з мэтай лячэння. *А. на сэрцы.* ‖ *прым.* **аперацы́йны**, -ая, -ае. *Аперацыйнае аддзяленне* (у бальніцы). *Аперацыйнае ўмяшанне.*

**АПЕРА́ЦЫЯ**[2], -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Каардынаваныя ваенныя дзеянні, аб'яднаныя адзінай мэтай. *Наступальная а.* **2.** Асобнае дзеянне ў шэрагу іншых падобных (афіц.). *Паштовыя аперацыі.* ‖ *прым.* **аперацы́йны**, -ая, ае. *Аперацыйная зала* (у банку).

**АПЕ́РЦІ** *гл.* абаперці.

**АПЕ́РЦІСЯ** *гл.* абаперціся.

**АПЕРЦЭ́ПЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Успрыманне, пазнаванне на падставе ранейшых уяўленняў і запасу ведаў. ‖ *прым.* **аперцэпцы́йны**, -ая, -ае.

**АПЕРЫ́РАВАЦЬ**[1], -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго-што.* Зрабіць (рабіць) аперацыю[1]. *А. хворага.*

**АПЕРЫ́РАВАЦЬ**[2], -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* (кніжн.). **1.** Праводзіць ваенныя аперацыі[2], дзейнічаць. *А. у тыле ворага.* **2.** *перан., чым.* Карыстацца данымі, фактамі пры вывадах, доказах. *А. фактамі.*

**АПЕРЫТЫ́Ў**, -тыву, *м.* Слабалкагольны напітак, які павышае апетыт.

**АПЕ́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пакрыцца пер'ем (пра птушак). **2.** *перан.* Стаць самастойным, сталым, забяспечаным. ‖ *незак.* **апéрвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АПЕ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго-што.* Пакрыць, упрыгожыць пер'ем. *А. стралу.* ‖ *незак.* **апéрваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АПЕРЭ́ТА**, -ы, *ДМ* -рэ́це, *мн.* -ы, -рэ́т, *ж.* **1.** Музычны камедыйны твор, у якім спевы чаргуюцца з размовай і танцамі. **2.** Пастаноўка такога твора на сцэне. *Іграць у аперэце.* **3.** Тэатр, у якім ставяцца музычна-вакальныя творы камедыйнага характару. ‖ *прым.* **аперэ́тачны**, -ая, -ае. *А. акцёр.*

**АПЕТЫ́Т**, -у, *М* -тыце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Жаданне есці. *Добры а.* **2.** *перан.*, звычайна *мн.* Вялікія жаданні, патрэбнасці (разм.). ◊ **Воўчы апетыт** — вельмі вялікі, няўтольны апетыт.

**АПЕТЫ́ТНЫ**, -ая, -ае. Які ўзбуджае апетыт, смачны, прыемны на выгляд. *А. торт.* ‖ *наз.* **апеты́тнасць**, -і, *ж.*

**АПЕ́ЦЬ**, апяю́, апяéш, апяé; апяём, апеяцé, апяю́ць; апéй; апéты; *зак., каго-што* (высок.). Уславіць, усхваліць (у вершах, песнях). *А. героя.* ‖ *незак.* **апявáць**, -áю, -áеш, -áе.

**АПЕ́ЧАК**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* Каменны або гліняны падмурак печы.

**АПІЛАВА́ЦЬ**, -лýю, -лýеш, -лýе; -лýй; -лавáны; *зак., што.* Апрацаваць пілою, напільнікам. *А. бервяно.* ‖ *незак.* **апілóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **апілóўванне**, -я, *н.* *і* **апілóўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **апілóвачны**, -ая, -ае. *А. станок. Апіловачныя работы.*

**АПІ́ЛКІ**, -лак. Дробныя часцічкі матэрыялу, якія ўтвараюцца пры апрацоўцы яго пілой, напільнікам, пілавінне. *Драўняныя а. Металічныя а.* ‖ *прым.* **апі́лачны**, -ая, -ае *і* **апі́лкавы**, -ая, -ае.

**АПІРА́ЦЦА** *гл.* абаперціся.

**АПІРА́ЦЬ** *гл.* абаперці.

**АПІ́РЫШЧА**, -а, *н.* (разм.). Тое, што і *апора* (у 2 знач.). *Трэба шукаць нейкага а. ў жыцці.*

**АПІСА́ЛЬНІЦТВА**, -а, *н.* Апісанне без спробы абагульнення, ацэнкі, вывадаў. *Захапленне аўтара апісальніцтвам.*

**АПІСА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які змяшчае ў сабе апісанне, абмежаваны адным апісан-

нем. *Апісальная частка даследавання.* || *наз.* **апіса́льнасць**, -і, *ж.*

**АПІСА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* апісаць. **2.** Слоўная абмалёўка каго-, чаго-н, сачыненне, укладанне, у якім што-н. апісваецца. *Геаграфічныя апісанні.*

**АПІСА́ЦЬ**, апішу́, апі́шаш, апі́ша; апішы́; апі́саны; *зак.* **1.** *каго-што.* Расказаць пра каго-, што-н., паказаць, абмаляваць у пісьмовай або вуснай форме. *А. падзеі.* **2.** *што.* Перадаць звесткі пра склад, асаблівасці чаго-н. *А. мясцовую гаворку.* **3.** *што.* Скласці поўны спіс чаго-н. (з мэтай уліку, па прычыне якой-н. пастановы судовых органаў і пад.). *А. маёмасць.* **4.** *што.* Завяшчаць каму-н. *А. дом старэйшаму сыну.* **5.** *што.* У матэматыцы: начарціць адну фігуру вакол другой з захаваннем пэўных умоў. *А. акружнасць вакол трохвугольніка.* **6.** *што.* Зрабіць рух, перамясціцца па крывой. *А. дугу.* || *незак.* **апі́сваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **апіса́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.) *і* **во́піс**, -у, *м.* (да 3 знач.).

**АПІ́СКА**, -і, *ДМ* апісцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Памылка ў пісьмовым тэксце, зробленая праз няўважлівасць.

**АПІТЭРАПІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Лячэнне пчаліным ядам. || *прым.* **апітэрапеўты́чны**, -ая, -ае.

**АПІ́ЦЦА**, ап'юся, ап'ешся, ап'ецца; ап'ёмся, ап'яцеся, ап'юцца; апіўся, апіла́ся, апіло́ся; *зак.* Тое, што і *абапіцца.* || *незак.* **апіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АПЛА́ВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -віцца, *зак.* Расплавіцца па краях, па паверхні. || *незак.* **аплаўля́цца**, -яецца.

**АПЛА́ВІЦЬ**, -ла́ўлю, -ла́віш, -ла́віць; -ла́ўлены; *зак., што.* Расплавіць край або паверхню чаго-н., нагрэўшы да высокай тэмпературы. || *незак.* **аплаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АПЛАДЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., каму-чаму.* Пляскаць у далоні ў знак адабрэння, прывітання і пад.

**АПЛАДНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ло́дніцца; *зак.* Стаць аплодненым. || *незак.* **апладня́цца**, -я́ецца.

**АПЛАДНІ́ЦЬ**, -ладню́, -ло́дніш, -ло́дніць; -ло́днены; *зак., каго-што.* Даць пачатак развіццю арганізма шляхам зліцця мужчынскай і жаночай палавых клетак. || *незак.* **апладня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **апладне́нне**, -я, *н.*

**АПЛАДЫСМЕ́НТЫ**, -аў. Пляска́нне ў далоні ў знак адабрэння ці прывітання.

**АПЛА́КАЦЬ**, -а́чу, -а́чаш, -а́ча; -а́ч; -а́каны; *зак., каго-што.* Выказаць слязамі свой смутак з прычыны чыёй-н. смерці. *А. маці.* || *незак.* **апла́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АПЛАМБАВА́ЦЬ** *гл.* пламбаваць.

**АПЛА́ТА**, -ы, *ДМ* -ла́це, *ж.* **1.** *гл.* аплаціць. **2.** Грошы, якія выплачваюцца за што-н. *Высокая а.* || *прым.* **апла́тны**, -ая, -ае.

**АПЛАЦІ́ЦЬ**, -ачу́, -а́ціш, -а́ціць; -а́чаны; *зак., што.* Унесці плату за што-н.; пакрыць якія-н. выдаткі. *А. праезд. А. рахунак.* || *незак.* **апла́чваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **апла́та**, -ы, *ДМ* -ла́це, *ж. А. працы.*

**АПЛЕ́СЦІ**, -ляту́, -ляце́ш, -ляце́; -ляцём, -лецяце́, -лятуць; -лёў, -ляла́, -ло́; -ляці́; -ле́цены; *зак.* **1.** *што.* Пакрыць перапляценнем з чаго-н., абвіць чым-н. гнуткім. *А. гаршчок.* **2.** *перан., каго-што.* Хітрыкамі аблытаць, ашукаць і пад. (разм.). || *незак.* **аплята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АПЛІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Металічны кручок для зашпільвання адзення. || *прым.* **аплікo̍вы**, -ая, -ае.

**АПЛІКА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Стварэнне малюнка, узору, арнаменту шляхам нашыўкі (наклейвання) на што-н. кавалачкаў рознакаляровай паперы, матэрыі і пад. **2.** Карціна, арнамент і пад., створаныя такім чынам. || *прым.* **аплікацы́йны**, -ая, -ае.

**АПЛО́МБ**, -у, *м.* (кніжн.). Залішняя самаўпэўненасць у гутарцы ці паводзінах, саманадзейнасць. *Гаварыць з апломбам.*

**АПЛО́Т**, -у, *М* -о́це, *м.* (высок.). Надзейная абарона, апора, цвярдыня.

**АПЛЫ́СЦІ**[1] *і* **АПЛЫ́ЦЬ**, -ыву́, -ыве́ш, -ыве́; -ывём, -ывяце́, -ыву́ць; -ы́ў, -ыла́, -ыло́; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Растаць, растапіцца зверху, з краёў і пачаць сцякаць, пакрываючы што-н. рэшткамі растопленага рэчыва. *Свечка аплыла.* **2.** Ацячы, заплыць тлушчам. *Твар аплыў.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Абваліцца, апаўзці пад дзеяннем вады, вільгаці. *Бераг аплыў.* || *незак.* **аплыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АПЛЫ́СЦІ**[2] *і* **АПЛЫ́ЦЬ**, -ыву́, -ыве́ш, -ыве́; -ывём, -ывяце́, -ыву́ць; -ы́ў, -ыла́, -ыло́; *зак., што.* Праплысці вакол чаго-н., абплысці. *А. востраў.* || *незак.* **аплыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АПЛЮ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Апырскаць, абліць. *А. вадой.* || *звар.* **аплю́хацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **аплю́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АПЛЯВА́ЦЬ**, -люю́, -люе́ш, -люе́; -люём, -люяце́, -люю́ць; -лю́й; -ляўва́ны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Пакрыць каго-, што-н. пляўкамі. **2.** *перан.* Зганьбіць, беспадстаўна зняважыць, абняславіць каго-н. *А. сумленнага чалавека.* || *незак.* **аплёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АПЛЯВУ́ХА**, -і, *ДМ* -ву́се, *мн.* -і, -ву́х, *ж.* (разм., груб.). **1.** Удар далонню па шчацэ. *Даць аплявуху.* **2.** *перан.* Зняважа, маральны ўдар.

**АПЛЯТА́ЦЬ** *гл.* аплесці.

**АПО́ВЕД** *і* (разм.) **АПАВЯ́Д**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апавяданне. *Аўтарскі а.*

**АПО́ВЕСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Літаратурна-мастацкі твор; эпічны жанр, блізкі да апавядання і рамана. **2.** Апавяданне пра якую-н. падзею ў яе паслядоўным развіцці. *Уважліва слухалі сумную а.*

**АПО́Й** *гл.* апаіць.

**АПО́ЙВАННЕ** *гл.* апаіць.

**АПО́ЙВАЦЬ** *гл.* апаіць.

**АПО́ЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, апо́ек, *ж.* Шкура цяляці-сысунка, а таксама выробленая з яе скура. || *прым.* **апо́йкавы**, -ая, -ае. *Апойкавыя боты.*

**АПО́КА**[1], -і, *ДМ* -о́цы, *мн.* -і, апо́к, *ж.* (спец.). Прыстасаванне, у якім робіцца ліцейная форма (скрынка без дна з фармовачнай зямлёй для заліўкі металам). || *прым.* **апо́кавы**, -ая, ае.

**АПО́КА**[2], -і, *ДМ* -о́цы, *ж.* (спец.). Цвёрдая лёгкая горная парода, багатая на крэменязём. || *прым.* **апо́кавы**, -ая, -ае.

**АПО́КРЫФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Старажытны твор з біблейскім сюжэтам, у якім дапушчаны адступленні ад афіцыйнага веравучэння і таму адхілены царквой. || *прым.* **апакрыфі́чны**, -ая, -ае. *Апакрыфічная літаратура.*

**АПО́ЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* Крайняя, выпуклая з аднаго боку дошка, якая атрымліваецца ў выніку падоўжнай распілоўкі бервяна. *Прыбудова з аполкаў.* || *прым.* **апо́лкавы**, -ая, -ае.

**АПО́ЛВАЦЬ** *гл.* апалоць.

**АПО́МНІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* **1.** Апрытомнець, прыйсці да стану самавалодання. *А. пасля страты прытомнасці.* **2.** Тое, што і *адумацца. Што вы робіце? Апомніцеся!*

**АПО́НА**, -ы, *мн.* -ы, апо́н, *ж.* **1.** Тое, чым накрываюць, апінаюць што-н. (разм.). *Накрыць ногі цёплай aпонай.* **2.** Тое, што ахутвае, ахінае з усіх бакоў. *А. смугі* (перан.).

**АПО́РА**, -ы, *ж.* **1.** Тое, на што можна абаперціся, што служыць для падтрымкі чаго-н. *А. для моста. Плошча апоры.* **2.** *перан.* Дапамога, сіла, што падтрымлівае каго-, што-н.; падтрымка. *Дзеці — а. для бацькоў у старасці.* **3.** *перан.* Зыходны пункт, аснова чаго-н. *Вопыт папярэднікаў — а. для далейшых даследаванняў.*

**АПО́РКІ**, -аў, *адз.* -рак, -рка, *м.* Старыя боты з адрэзанымі халявамі, рэшткі зношанага абутку. *На нагах былі нейкія а.*

**АПО́РНЫ**, -ая, -ае. Які з'яўляецца апорай (у 1 знач.), уяўляе сабой апору, аснову чаго-н., умацаванне. *А. пункт. Апорная калона.*

**АПО́РТ**, -у, *М* -рце, *м.* Гатунак зімовых чырвоных яблыкаў вялікага памеру. || *прым.* **апо́ртавы**, -ая, -ае.

**АПО́СТАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У хрысціянстве: вучань Хрыста, прапаведнік яго вучэння. **2.** *перан., чаго.* Паслядоўнік і прапаведнік якой-н. ідэі (кніжн.). **3.** Царкоўная новазапаветная кніга, якая змяшчае «Дзеянні» і «Пасланні апосталаў». || *прым.* **апо́стальскі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**АПО́СТРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Надрадковы знак у выглядзе коскі ('), напр., у напісанні слова «надвор'е».

**АПО́СУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікая млекакормячая жывёліна сямейства сумчатых пацукоў, якая водзіцца ў лясах Амерыкі.

**АПО́ЎДНІ**, *прысл.* Тое, што і *апаўдні, апаўдня.*

**АПО́ЎЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Тое, што і *абпоўзаць.* ‖ *незак.* **апо́ўзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АПО́ЎЗВАЦЬ** *гл.* апаўзці, апоўзаць.

**АПО́ЎЗЕНЬ**, -зня, *мн.* -зні, -зняў, *м.* Грунт, парода, што пад дзеяннем вады, свайго цяжару спаўзае па схіле ўніз. *Берагавы а.* ‖ *прым.* **апо́ўзневы**, -ая, -ае. *Апоўзневыя працэсы.*

**АПО́ЎЗІНЫ**, -зін, *толькі мн.* Звязаныя канцамі дубцы, якія ўскладаюцца на стог для ўмацавання сена.

**АПО́ЎЗЛЫ**, -ая, -ае. Які апоўз, апусціўся. *А. бераг.*

**АПО́ЎНАЧЫ** *і* **АПАЎНО́ЧЫ**, *прысл.* У 12 гадзін ночы. *З паходу вярнуліся а.*

**АПО́ШЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Зрабіць пошлым, паказаць дробным, нікчэмным. *А. чужую думку. А. высокія словы.* ‖ *незак.* **апашля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **апашле́нне**, -я, *н.*

**АПО́ШНІ**, -яя, -яе. **1.** Канцавы ў шэрагу чаго-н. *А. дзень заняткаў. А. ў чарзе. У а. раз.* **2.** Адзіны, астатні. *Раздзяліць а. кавалак хлеба.* **3.** Які толькі што з'явіўся, самы новы. *А. нумар часопіса. Апошнія паведамленні. Апранацца па апошняй модзе.* **4.** Канчатковы, беспаваротны, рашаючы; вышэйшы, крайні. *Апошняе слова. А. сродак.* **5.** Зусім дрэнны, самы горшы (разм.). *Лаяць апошнімі словамі.* **6.** Гэты, толькі што названы (кніжн.). *Зайшла адна жанчына, затым другая, апошняя — з дзіцём.* **7.** *наз.* **апо́шняе**, -яга, *н.* Тое адзінае, што засталося. *Гатовы з чалавекам апошнім падзяліцца.*

**АПРАБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* **1.** Праверыць, выпрабаваць. *А. новую тэхніку.* **2.** Даць афіцыйнае адабрэнне чаму-н. ‖ *незак.* **апрабо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **апрабо́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **апрабава́нне**, -я, *н. і* **апраба́цыя**, -і, *ж.*

**АПРА́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́ў, *ж.* **1.** Тое, у што ўстаўляецца што-н., аздоба чаго-н., рамка. *Люстэрка ў бляшанай аправе. Акуляры ў дарагой аправе.* **2.** *перан.* Тое, што акружае як рамка. *Возера ў аправе кучаравых кустоў.* **3.** Металічнае пакрыццё абразоў як аздоба. *А. абраза.* ‖ *прым.* **апра́вачны**, -ая, -ае.

**АПРА́ВІЦЦА**, -ра́ўлюся, -ра́вішся, -ра́віцца; *зак.* **1.** *ад чаго.* Аднавіць свае сілы, ачуняць, паправіцца; дасягнуць ранейшага стану. *А. ад хваробы.* **2.** Спаражніцца (разм.). ‖ *незак.* **апраўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**АПРА́ВІЦЬ**, -ра́ўлю, -ра́віш, -ра́віць; -ра́ўлены; *зак., што.* Уставіць у аправу. *А. акуляры. А. партрэт.* ‖ *незак.* **апраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АПРАМЕ́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* Тое, што і *абпраменіцца.*

**АПРАМЕ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што.* Тое, што і *абпраменіць.* ‖ *незак.* **апраме́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **апраме́ньванне**, -я, *н. і* **апрамяне́нне**, -я, *н. Апраменьванне кварцам.*

**АПРАМЕ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пякельны, такі, як у пекле. **2.** *перан.* Незвычайны па ступені праяўлення. *Апраметная цемра.* **3.** *у знач. наз.* **апраме́тная**, -ай, *ж.* Пекла, падземнае царства. *Праваліцца ў апраметную.*

**АПРАНА́ХА**, -і, *ДМ* -на́се, *мн.* -і, -на́х, *ж.* (разм.). Прадмет верхняга адзення. *Накінь на плечы якую-небудзь апранаху.*

**АПРАНУ́ЦЬ**, -ану́, -а́неш, -а́не; -а́нем, -а́неце, -а́нуць; -ані́; -а́нуты *і* -а́нены; *зак.* **1.** *каго-што.* Адзець. *А. дзіця.* **2.** *што.* Надзець, нацягнуць на сябе ці на каго-н. якую-н. вопратку. *А. паліто.* **3.** *каго-што.* Забяспечыць неабходнай вопраткай (разм.). *А. сям'ю.* **4.** *каго-што.* Увасобіць у якой-н. форме. *А. хлопца ў мядзведзя.* **5.** *перан.* Пакрыць. *Ноч апранула зямлю.* ‖ *незак.* **апрана́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **апрану́цца**, -ану́ся, -а́нешся, -а́нецца; -а́немся, -а́нецеся, -а́нуцца; -ані́ся; *незак.* **апрана́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **апрана́нне**, -я, *н.*

**АПРАСНЕ́ННЕ** *гл.* апрэсніць.

**АПРАСНЯ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Прыбор для апраснення вады.

**АПРАСНЯ́ЛЬНЫ** *гл.* апрэсніць.

**АПРАСНЯ́ЦЬ** *гл.* апрэсніць.

**АПРАСЦІ́ЦЦА**, -рашчу́ся, -ро́сцішся, -ро́сціцца; *зак.* Стаць больш простым у звычках, адзенні і пад. ‖ *незак.* **апрашча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **апрашчэ́нне**, -я, *н.*

**АПРА́ТАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). **1.** Ачысціцца, абмыцца, прыбрацца. *А. перад святам.* **2.** Паправіцца, паздаравець. *Ледзь апратаўся пасля хваробы.* ‖ *незак.* **апра́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АПРА́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Прыбраць, пачысціць, абмыць. *А. дзяцей. А. хату перад святам.* ‖ *незак.* **апра́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АПРАТЭСТАВА́ННЕ** *гл.* пратэставаць.

**АПРАТЭСТАВА́ЦЬ** *гл.* пратэставаць.

**АПРАЎДА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які заключае ў сабе апраўданне. *А. прыгавор. А. дакумент.*

**АПРАЎДА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* апраўдаць. **2.** Довад, якім можна апраўдаць, вытлумачыць што-н. *Для яго ўчынкаў няма апраўдання.*

**АПРАЎДА́НЫ**, -ая, -ае. Які мае апраўданне (у 2 знач.) у чым-н. *Апраўданая рызыка.*

**АПРАЎДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Даказаць сваю невінаватасць. *А. перад народам.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пацвердзіцца; аказацца правільным. *Спадзяванні апраўдаліся.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Акупіцца, атрымаць кампенсацыю. *Расходы апраўдаліся.* ‖ *незак.* **апра́ўдвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АПРАЎДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго (што).* Прызнаць невінаватым, вынесці апраўдальны прыгавор. *А. падсуднага.* **2.** *што.* Даказаць магчымасць чаго-н. *Старацца а. які-н. учынак.* **3.** *што.* Паказаць сябе дастойным чаго-н. *А. высокае званне. А. давер калектыву.* **4.** *што.* Акупіць, кампенсаваць. *Расходы апраўдаюць сябе.* ‖ *незак.* **апра́ўдваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **апраўда́нне**, -я, *н.*

**АПРАЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак.* **1.** *што.* Вырабіць, адшліфаваць, ачысціць, зрабіць гатовым для чаго-н. *А. дэталь. А. камень.* **2.** *што.* Падрыхтаваць для пасеву, пасадкі. *А. зямлю.* **3.** *перан., каго-што.* Уздзейнічаць на каго-н. у пажаданым кірунку, схіліць да чаго-н. **4.** Надаць чаму-н. завершаны выгляд; зрабіць больш дасканалым. ‖ *незак.* **апрацо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **апрацо́ўванне**, -я, *н. і* **апрацо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**АПРАЦІ́ВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* Стаць брыдкім, агідным, невыносным, моцна надакучыць каму-н. *Апрацівелі штодзённыя папрокі і натацыі.*

**АПРАЦО́ЎЧЫ**, -ая, -ае. Які служыць для апрацоўкі, прызначаны для апрацоўкі. *А. інструмент. Апрацоўчая прамысловасць.*

**АПРАЧА́** *і* **АПРО́Ч**, *прыназ. з Р.* **1.** За выключэннем каго-, чаго-н. *Дома ўсе, а. бацькі.* **2.** У дадатак да каго-, чаго-н. *У хаце, а. ложка, была і канапа.*

**АПРУЦЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Застылы, скарчанелы; анямелы, адубелы. *Апруцянелыя ад холаду пальцы.*

**АПРУЦЯНЕ́ЦЬ** *гл.* пруцянець.

**АПРЫЕ́РЫ**, *прысл.* (кніжн.). **1.** Незалежна ад вопыту, да вопыту; *проціл.* апастэрыёры. **2.** *перан.* Не правяраючы чаго-н., загадзя. ‖ *прым.* **апрыё́рны**, -ая, -ае; *наз.* **апрыё́рнасць**, -і, *ж.*

**АПРЫ́КРАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Стаць прыкрым, непрыемным; моцна надакучыць каму-н. з-за аднастайнасці. *Апрыкралі дажджы.*

**АПРЫ́КРЫ**, -ая, -ае. Які стаў прыкрым, непрыемным, нязносным з-за аднастайнасці.

**АПРЫТО́МНЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* **1.** Ачуцца, прыйсці да прытомнасці. **2.** Апамятацца, набыць здольнасць спакойна разважаць і дзейнічаць.

**АПРЫХО́ДАВАЦЬ** *гл.* прыходаваць.

**АПРЫ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (гіст.). Той, хто знаходзіўся ў радах апрычніны (у 3 знач.). *Царскія апрычнікі.*

**АПРЫ́ЧНІНА**, -ы, *ж.* **1.** *гіст.* Сістэма надзвычайных мер, ажыццёўленая царом Іванам IV Грозным для разгрому баярска-княжацкай апазіцыі і ўмацавання самадзяржаўя. **2.** Частка дзяржаўных тэрыторый, якія знаходзіліся ў кіраванні цара Івана IV і служылі яму апорай у насаджэнні сваёй палітыкі. **3.** Спецыяльнае войска цара Івана IV для правядзення яго паліты-

кі, высочвання і выкаранення «крамолы». ‖ *прым.* **апры́чны**, -ая, -ае. *Апрычнае войска. Апрычныя ўладанні.*

**АПРЫШЧА́ВЕЦЬ** *гл.* прышчавецць.

**АПРЭ́СНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што.* Зрабіць прэсным, ачысціць ад солей. *А. марскую ваду.* ‖ *незак.* **апрасня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **апрасне́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **апрасня́льны**, -ая, -ае.

**АПТАВІ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Гандляр, камерсант, які вядзе аптовы гандаль.

**АПТО́ВЫ**, -ая, -ае. Які звязаны з гандлем оптам, які робіцца оптам. *А. гандаль. Аптовыя цэны.*

**АПТЫМА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. (кніжн.). Найбольш спрыяльны, зручны; найлепшы. *Аптымальныя ўмовы.* ‖ *наз.* **аптыма́льнасць**, -і, *ж.*

**АПТЫМІ́ЗМ**, -у, *м.* Бадзёрае і жыццярадаснае светаадчуванне, пры якім чалавек верыць у лепшае, у поспех; *проціл.* песімізм. ‖ *прым.* **аптымісты́чны**, -ая, -ае; *наз.* **аптымісты́чнасць**, -і, *ж.*

**АПТЫМІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, поўны аптымізму; *проціл.* песіміст. ‖ *ж.* **аптымі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АПТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* оптыка. **2.** Светлавы, зрокавы. *А. падман.*

**АПТЭ́КА**, -і, *ДМ* -тэ́цы, *мн.* -і, -тэ́к, *ж.* Установа, дзе па рэцэптах урачоў робяцца і адпускаюцца лякарствы, а таксама прадаюцца гатовыя лякарствы, санітарна-гігіенічныя, касметычныя і інш. прадметы. ◊ **Як у аптэцы** (разм., жарт.) — вельмі дакладна. ‖ *прым.* **аптэ́карскі**, -ая, -ае *і* **аптэ́чны**, -ая, -ае. *Аптэкарскія тавары. Аптэчная шафа.*

**АПТЭ́КАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік аптэкі; фармацэўт. ‖ *ж.* **аптэ́карка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **аптэ́карскі**, -ая, -ае.

**АПТЭ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Набор лякарстваў, неабходных для першай дапамогі, а таксама спецыяльная скрынка, шафка з такім наборам. *Дарожная а.*

**АПУБЛІКАВА́ННЕ** *гл.* публікаваць.

**АПУБЛІКАВА́ЦЬ** *гл.* публікаваць.

**АПУБЛІКО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *публікаваць.*

**АПУ́СКЛІВЫ**, -ая, -ае. Неахайны, недагледжаны. *А. чалавек.*

**АПУСКНЫ́**, -а́я, -óе. Які можна апусціць. *Апускная лямпа.*

**АПУСТАША́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які робіць апусташэнне. *Апусташальныя войны.* ‖ *наз.* **апусташа́льнасць**, -і, *ж.*

**АПУСТО́ШАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Спустошаны. *Апустошаная зямля.* **2.** *перан.* Пазбаўлены маральных сіл, унутранага, духоўнага зместу. *Апустошаная душа.* ‖ *наз.* **апусто́шанасць**, -і, *ж.*

**АПУСТО́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць пустым, спустошыць. *А. зямлю. А. кішэні* (жарт.). **2.** *перан., каго-што.* Пазбавіць маральных сіл, духоўнага зместу. *А. душу чалавека.* ‖ *незак.* **апусташа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **апусташэ́нне**, -я, *н. і* **апусто́шванне**, -я, *н.*

**АПУСЦЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў пустым, бязлюдным. *А. дом. Апусцелыя вуліцы.* ‖ *наз.* **апусце́ласць**, -і, *ж.*

**АПУСЦЕ́ННЕ** *гл.* пусцець.

**АПУСЦЕ́ЦЬ** *гл.* пусцець.

**АПУСЦІ́ЦЦА**, -ушчу́ся, -у́сцішся, -у́сціцца; *зак.* **1.** Перамясціцца ў больш нізкае становішча; знізіцца. *Бусел апусціўся на луг.* **2.** *на што і без дап.* Наблізіўшыся да паверхні зямлі, ахінуць, ахутаць што-н. *Вячэрні змрок апусціўся на горад.* **3.** *без дап.* Спусціўшыся, перагарадзіць доступ куды-н. *Заслона апусцілася. Шлагбаум апусціўся.* **4.** *перан.* Перастаць клапаціцца пра свой знешні выгляд, дрэнна паводзіць сябе ў маральных адносінах. *Апусціўся чалавек.* ‖ *незак.* **апуска́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **апушчэ́нне**, -я, *н.*

**АПУСЦІ́ЦЬ**, -ушчу́, -у́сціш, -у́сціць; -у́шчаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Перамясціць у больш нізкае становішча. *А. сцяг.* **2.** *што.* Схіліць, нахіліць. *А. галаву. А. вочы* (скіраваць позірк уніз). **3.** *каго-што.* Змясціць у што-н. куды-н. уніз. *А. пісьмо ў паштовую скрынку.* **4.** Перавесці з вертыкальнага становішча ў гарызантальнае, адчыняючы або зачыняючы што-н. *А. шлагбаум.* **5.** *што.* Зрабіць пропуск, выключыць. *Пры чытанні а. слова.* **6.** *каго-што.* Занядбаць, запусціць. *А. гаспадарку.* ‖ *незак.* **апуска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **апуска́нне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **апушчэ́нне**, -я, *н.*

**АПУ́ХА**, -і, *ДМ* апусе, *м.* **1.** *гл.* апушыць. **2.** Футравая абшыўка па краях адзення, абутку. *А. даражэй кажуха* (прымаўка).

**АПУХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Тое, што і *пухнуць. Рукі апухаюць.*

**АПУ́ХЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які апух. *А. твар.* ‖ *наз.* **апу́хласць**, -і, *ж.*

**АПУ́ХНУЦЬ** *гл.* пухнуць.

**АПУ́ШЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -шын, *ж.* Дошка ля краю даху, страхі; застрэшніца.

**АПУ́ШЫЦЬ**, -шыць; *безас.; зак., каго-што* (разм.). Занадта павялічыцца ў аб'ёме, раздзьмуцца (пра жывот). *Апушыла жывот.*

**АПУШЫ́ЦЬ**, -шу́, -шы́ш, -шы́ць; -шы́м, -шыце́, -шу́ць; апу́шаны; *зак., што.* **1.** Абшыць па краях футрам (адзенне, абутак). *А. паліто.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра снег, іней: зацерушыць, абсыпаць. *Іней апушыў дрэвы прысад.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пакрыць, акружыць пушком, чым-н. пушыстым. ‖ *незак.* **апу́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **апу́ха**, -і, *ДМ* апу́се, *ж.* (да 1 знач.) *і* **апу́шванне**, -я, *н.*

**АПЫЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* апыліць. **2.** Перанос пылку кветкі з тычынак на рыльца песціка для апладнення. *А. раслін. Штучнае а.*

**АПЫЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., апыліцца; *зак.* Стаць апыленым. *Кветкі апыліліся.* ‖ *незак.* **апыля́цца**, -я́ецца *і* **апы́львацца**, -аецца.

**АПЫЛІ́ЦЬ**, апылю́, апы́ліш, апы́ліць; апы́лены; *зак., што.* **1.** Зрабіць апыленне (у 2 знач.). *А. кветку.* **2.** Апрацаваць пылападобным саставам для знішчэння шкодных насякомых. *А. пасевы.* ‖ *незак.* **апыля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 1 знач.) *і* **апы́льваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.); *наз.* **апы́льванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **апыле́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**АПЫЛКАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ку́ецца; *зак.* Тое, што і *апыліцца.* ‖ *незак.* **апылко́ўвацца**, -аецца.

**АПЫЛКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* Тое, што і *апыліць* (у 1 знач.). ‖ *незак.* **апылко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **апылкава́нне**, -я, *н.*

**АПЫ́ЛЬВАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Апарат для апыльвання раслін; апыляльнік (у 2 знач.).

**АПЫЛЯ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Пераносчык пылку кветак з тычынак на песцік (насякомыя, птушкі, вецер, вада). **2.** Тое, што і *апыльвальнік.*

**АПЫНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няцёся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* Трапіць куды-н., аказацца ў якім-н. месцы, становішчы. *А. ў горадзе.* ‖ *незак.* **апына́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АПЫРСКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Абліць, пакрыць пырскамі, дробнымі кроплямі. *А. вадой.* ‖ *незак.* **апы́рскваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **апы́рснуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *звар.* **апы́рскацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **апы́рсквацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **апы́рскванне**, -я, *н.*

**АПЫРСКВАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Апарат для апырсквання раслін.

**АПЫТА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Пералік пытанняў па якой-н. тэме, пры зборы якіх-н. звестак; анкета.

**АПЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* **1.** Сабраць адказы на якія-н. пытанні. *А. усіх прысутных.* **2.** Праверыць веды вучняў, студэнтаў і інш., выклікаючы па чарзе. ‖ *незак.* **апы́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **апыта́нне**, -я, *н.; прым.* **апыта́льны**, -ая, -ае. *А. ліст.*

**АПЭ́ЦКАЦЦА** *гл.* пэцкацца.

**АПЭ́ЦКАЦЬ** *гл.* пэцкаць.

**АПЯВА́ЦЬ** *гл.* апець.

**АПЯКА́ЦЬ**[1] *гл.* апячы.

**АПЯКА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго (што).* Тое, што і *апекаваць. А. дзяцей.*

**АПЯКУ́Н**, апекуна́, *мн.* апекуны́, апекуно́ў, *м.* Асоба, якой даручана апека, апякунства над кім-н. ‖ *ж.* **апяку́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **апяку́нскі**, -ая, -ае.

**АПЯКУ́НСТВА**, -а, *н.* Абавязкі апекуна. *Узяць дзяцей пад сваё а.*

**АП'ЯНЕ́ННЕ** *гл.* п'янець.

**АП'ЯНЕ́ЦЬ** *гл.* п'янець.

**АП'ЯНІ́ЦЬ** *гл.* п'яніць.

**АП'ЯНЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які п'яніць, ад якога хмялееш. *А. пах чаромхі.*

**АПЯРА́ЗВАЦЦА** *гл.* аперазацца.

**АПЯРА́ЗВАЦЬ** *гл.* аперазаць.

**АПЯРЭ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што.* **1.** Рухаючыся ў адным напрамку з кім-, чым-н., апынуцца наперадзе, абагнаць. **2.** Зрабіць што-н. раней; чым што-н. адбылося. *А. падзеі.* ‖ *незак.* **апярэ́джваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **апераджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **апярэ́джанне**, -я, *н.*

**АПЯРЭ́ННЕ**, -я, *н.* Пер'е ў птушак. ○ **Хваставое апярэнне самалёта** (спец.) — вертыкальныя і гарызантальныя плоскасці на задняй частцы самалёта.

**АПЯЧА́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Закрыць доступ да чаго-н., наклаўшы сургучную пячатку. *А. кватэру.* ‖ *незак.* **апяча́тваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **апяча́тванне**, -я, *н.*

**АПЯЧЫ́**, апяку́, апячэ́ш, апячэ́; апячо́м, апечаце́, апяку́ць; апёк, апякла́, -ло́; апячы́; апе́чаны; *зак., каго-што.* **1.** Агнём або чым-н. гарачым, едкім, пякучым і інш. пашкодзіць скуру; абпаліць, прычыніць боль. *А. руку. А. крапівой ногі.* **2.** *перан.* Уразіць, усхваляваць. *Рэзкае слова апякло сэрца.* ‖ *незак.* **апяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АПЯЧЫ́СЯ**, апяку́ся, апячэ́шся, апячэ́цца; апячо́мся, апечаце́ся, апяку́цца; апёкся, апякла́ся, -ло́ся; апячы́ся; *зак.* **1.** Пашкодзіць сабе што-н. агнём або чым-н. гарачым, едкім, пякучым; атрымаць апёк. *А. крапівою.* **2.** *перан.* Пацярпець няўдачу, нечакана сустрэўшы перашкоду пры спробе зрабіць што-н. (разм.). *А. на новай справе. Каля вады намочышся, каля агню апячэшся* (прыказка). ‖ *незак.* **апяка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АПЯЯ́ЦЬ**, апяю́, апяе́ш, апяе́; апяём, апеяце́, апяю́ць; апе́й; апяя́ны; *зак., каго-што* (высок.). Тое, што і *апець.*

**АР**, а́ра, *мн.* а́ры, а́раў, *м.* Мера зямельнай плошчы ў метрычнай сістэме, роўная 100 м$^2$; адна сотая гектара.

**АРАБЕ́СКА**, -і, *ДМ* -бе́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** Складаны арнамент з геаметрычных фігур і стылізаваных кветак, лісця і пад. першапачаткова ў помніках арабскага мастацтва, пазней у арабскім стылі (спец.). **2.** *мн.* Збор невялікіх літаратурных ці музычных твораў (кніжн.). ‖ *прым.* **арабе́скавы**, -ая, -ае.

**АРАБІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -бі́н, *ж.* Тое, што і *рабіна. Палымнеюць арабіны.* ‖ *памянш.* **арабі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **арабі́навы**, -ая, -ае.

**АРАБІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вучоны, спецыяліст у галіне арабістыкі. ‖ *ж.* **арабі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АРАБІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Сукупнасць навук аб мове, культуры і гісторыі арабаў.

**АРА́БЫ**, -аў, *адз.* ара́б, -а, *м.* Народы семітычнай моўнай групы, якія насяляюць Пярэднюю Азію і Паўночную Афрыку. ‖ *ж.* **ара́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак. ‖ *прым.* **ара́бскі**, -ая, -ае.

**АРАГАВЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Зацвярдзець, пакрыцца рагавой луской. *Скура арагавела.* ‖ *наз.* **арагаве́нне**, -я, *н.*

**АРАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Раздзел фізічнай геаграфіі, які вывучае рэльеф зямной паверхні. ‖ *прым.* **араграфі́чны**, -ая, -ае.

**АРА́КУЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Месца, храм, дзе ў Старажытнай Грэцыі, Рыме, краінах старажытнага Усходу жрацы прарочылі ад імя Бога. *Дэльфійскі а.* **2.** У антычным свеце: жрэц-прадказальнік волі бажаства, які даваў адказы на розныя пытанні. **3.** *перан.* Пра таго, чые меркаванні прызнаюцца бясспрэчнай ісцінай (іран.). ‖ *прым.* **ара́кульскі**, -ая, -ае.

**АРАКЧЭ́ЕЎШЧЫНА**, -ы, *ж.* (гіст.). Рэжым неабмежаванага паліцэйскага дэспатызму, самавольства ваеншчыны ў кіраванні народам у пачатку 19 ст. у Расіі.

**АРА́ЛА**, -а, *н.* **1.** *уст.* Прылада для ворыва, саха. **2.** У выразе: **перакаваць мячы на аралы** (высок.) — скончыўшы вайну, пачаць мірна працаваць.

**АРАНГУТА́Н** *і* **АРАНГУТА́НГ**, -а, *мн.* -ы *і* -і, -аў, *м.* Буйная чалавекападобная малпа. ‖ *прым.* **арангута́навы (арангута́нгавы)**, -ая, -ае.

**АРАНДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак.* і *незак., што.* Узяць (браць) у арэнду.

**АРАНДА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто арандуе што-н. ‖ *ж.* **аранда́тарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **аранда́тарскі**, -ая, -ае.

**АРА́НЖАВЫ**, -ая, -ае. Які мае чырвона-жоўтую (адну з сямі асноўных колераў спектра) афарбоўку; падобны да колеру апельсінаў. *А. колер.*

**АРАНЖАРЭ́Я**, -і, *мн.* -і, -рэ́й, *ж.* Цёплае зашклёнае памяшканне для вырошчвання раслін; цяпліца. ‖ *прым.* **аранжарэ́йны**, -ая, -ае. *Аранжарэйная расліна* (таксама перан., іран.: пра далікатнага, распешчанага чалавека).

**АРАНЖЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Перакласці (перакладаць) музычны твор для выканання на іншым інструменце або іншага саставу інструментаў (галасоў). ‖ *наз.* **аранжыро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ро́вак.

**АРА́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Цемнаскуры чалавек, негр (уст.). **2.** Ашуканец, жулік (разм., уст.). ◊ **Браць на арапа** (разм., неадабр.) — браць ашуканствам, падманам. ‖ *ж.* **ара́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак (да 1 знач.). ‖ *прым.* **ара́пскі**, -ая, -ае.

**АРА́ПНІК**, -а, *м.* Доўгі паляўнічы бізун з кароткай ручкай або кароткі раменны бізун.

**АРАСІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., аро́сіцца; *зак.* Пакрыцца кроплямі чаго-н., насыціцца вільгаццю. *Арасілася зямля.* ‖ *незак.* **араша́цца**, -а́ецца.

**АРАСІ́ЦЬ**, арашу́, аро́сіш, аро́сіць; арашо́ны; *зак., што.* **1.** Апырскаць кроплямі чаго-н., увільгатніць. *Дробны дождж арасіў глебу.* **2.** Шляхам правядзення каналаў абвадніць, паліць. *А. палі.* ‖ *незак.* **араша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **арашэ́нне**, -я, *н.*

**АРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, хто гаворыць прамову, прамоўца. 2. Той, хто валодае красамоўствам, майстэрствам слова. *Сапраўдны а.* ‖ *прым.* **ара́тарскі**, -ая, -ае.

**АРА́ТАРСТВАВАЦЬ**, -ствую, -ствуеш, -ствуе; -ствуй; *незак.* (іран.). Гаварыць з прэтэнзіяй на красамоўства.

**АРАТО́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Вялікі музычна-драматычны твор для хору, спевакоў-салістаў і аркестра. ‖ *прым.* **арато́рны**, -ая, -ае *і* **аратарыя́льны**, -ая, -ае.

**АРА́ТЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Той, хто апрацоўвае, арэ зямлю; земляроб. *Дзе а. плача, там жняя скача* (прыказка). ‖ *прым.* **ара́цкі**, -ая, -ае.

**АРА́ХІС**, -у, *м.* Паўднёвая травяністая алейная расліна сямейства бабовых; земляны арэх, а таксама плод гэтай расліны. ‖ *прым.* **ара́хісавы**, -ая, -ае. *А. торт* (з арахісам).

**АРА́ЦЬ**, ару́, арэ́ш, арэ́; аро́м, араце́, ару́ць; ары́; ара́ны; *незак., што* і *без дап.* Апрацоўваць зямлю плугам, сахой. ‖ *зак.* **узара́ць**, -ру́, -рэ́ш, -рэ́, -ро́м, -раце́, -ру́ць; -ры́; -ра́ны. ‖ *наз.* **ара́нне**, -я, *н. і* **во́рыва**, -а, *н.*

**А́РАЧНЫ** *гл.* арка.

**АРАША́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для арашэння, штучнага ўвільгатнення глебы. *А. канал.*

**АРБА́**, -ы́, *мн.* а́рбы, -аў, *ж.* Высокі двухколавы воз у Сярэдняй Азіі, а таксама доўгі чатырохколавы — ва Украіне, у Крыме, на Каўказе.

**АРБАЛЕ́Т**, -а, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Старадаўняя ручная кідальная зброя; самастрэл. ‖ *прым.* **арбале́тны**, -ая, -ае.

**АРБІ́ТА**, -ы, *ДМ* -бі́це, *мн.* -ы, -бі́т, *ж.* **1.** Шлях руху нябеснага цела, а таксама касмічнага апарата, карабля. *А. Марса.* **2.** *перан., чаго* або *якая.* Сфера дзеяння, распаўсюджання чаго-н. **3.** Вочная ўпадзіна, вачніца. *Аж вочы павылазілі з арбіт.* ‖ *прым.* **арбіта́льны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.; спец.).

**АРБІ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Суддзя, пасрэднік у спрэчках не судовага характару; трацейскі суддзя. **2.** Суддзя ў некаторых відах спартыўных спаборніцтваў.

**АРБІТРА́Ж**, -у, *м.* Вырашэнне спрэчак не судовага характару арбітрамі, трацейскім судом; дзяржаўны орган, які займаецца гэтым. ‖ *прым.* **арбітра́жны**, -ая, -ае.

**АРГ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая ўжыв. ў знач. арганізацыйны, напр.: *аргкамітэт, аргвывады.*

**АРГАМА́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Старажытная назва ўсходніх пародзістых верхавых коней. ‖ *прым.* **аргама́чны**, -ая, -ае.

**АРГА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музычны духавы клавішны інструмент, што складаецца з набору труб, у якія мяхамі напампоўваецца паветра. ‖ *прым.* **арга́нны**, -ая, -ае. *Арганная музыка.*

**АРГАНА...** *і* **АРГАНА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) арганічны (у 1 знач.), напр.: *арганагенны, аргана-мінеральны*; 2) які мае адносіны да органаў (у 1 знач.), напр.: *арганапаталогія, арганапластыка, арганатэрапеўтычны, арганатэрапія* (прымяненне з лячэбнай мэтай рэчываў жывёльнага паходжання).

**АРГАНІЗАВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Аб'яднаны, згуртаваны, які ўваходзіць у склад якой-н. арганізацыі. *А. калектыў.* **2.** Планамерны, упарадкаваны. *А. характар партызанскай барацьбы.* **3.** Дысцыплінаваны, які дзейнічае дакладна і планамерна. ‖ *наз.* **арганізава́насць**, -і, *ж.*

**АРГАНІЗАВА́ЦЦА**, -зу́юся, -зу́ешся, -зу́ецца; -зу́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Узнікнуць, з'явіцца, утварыцца. *Арганізаваўся новы аддзел.* **2.** Аб'яднацца для якой-н. мэты. *А. на барацьбу за мір.* ‖ *незак.* **арганізо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АРГАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* **1.** *што.* Заснаваць, стварыць. *А. курсы. А. хор.* **2.** *што.* Падрыхтаваць, наладзіць. *А. сустрэчу. А. дастаўку газет.* **3.** *каго-што.* Аб'яднаць для якой-н. мэты. *А. моладзь.* **4.** *што.* Упарадкаваць што-н. *А. свой час.* ‖ *незак.* **арганізо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **арганіза́цыя**, -і, *ж.*

**АРГАНІЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто арганізоўвае, з'яўляецца ініцыятарам чаго-н. *А. атрада.* ‖ *прым.* **арганіза́тарскі**, -ая, -ае. *Арганізатарскія здольнасці.*

**АРГАНІЗАЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да арганізацыі (*гл.* арганізаваць у 1 знач.), да падрыхтоўкі ажыццяўлення чаго-н. *А. перыяд. Арганізацыйныя расходы.*

**АРГАНІЗА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** *гл.* арганізаваць. **2.** Грамадскае аб'яднанне або дзяржаўная ўстанова. *Прафсаюзная а. Будаўнічая а.* **3.** Арганізаванасць, унутраная дысцыпліна, прадуманы, планамерны парадак. *Дакладная а. ў рабоце.* **4.** Фізічная ці псіхафізічная будова асобнага арганізма.

**АРГАНІ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Усякая жывая істота, расліна. *Развіццё арганізмаў.* **2.** Сукупнасць фізічных і духоўных уласцівасцей чалавека. *Здаровы а.* **3.** Складанае арганізаванае адзінства (перан.). *Дзяржаўны а.* ‖ *прым.* **аргані́зменны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**АРГА́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* (разм.). **1.** Арганічная хімія. **2.** Арганічныя ўгнаенні. *Вывезці арганіку на палі.*

**АРГАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на аргане. ‖ *ж.* **аргані́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **аргані́сцкі**, -ая, -ае.

**АРГАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які належыць да жывёльнага або расліннага свету, які мае адносіны да арганізмаў (у 1 знач.). *А. свет. Арганічная прырода.* **2.** Які датычыцца ўнутранай будовы чалавека, яго органаў. *А. парок сэрца.* **3.** *перан.* Які датычыцца самой сутнасці чаго-н., карэнны, унутрана ўласцівы каму-н. *Арганічнае адзінства тэорыі і практыкі. Арганічнае непрыманне.* ○ **Арганічная хімія** — раздзел хіміі, які вывучае злучэнні, што змяшчаюць у сабе вуглярод. ‖ *наз.* **аргані́чнасць**, -і, *ж.*

**АРГАТЫ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Слова ці моўны зварот з арго.

**АРГВЫВАДЫ**, -аў. Скарачэнне: арганізацыйныя вывады — канкрэтныя меры, якія прымаюцца для рэалізацыі якога-н. рашэння. *Зрабіць а.*

**АРГО́**, *нескл.*, *н.* Умоўныя словы і выразы, якія ўжыв. якой-н. адасобленай ці прафесійнай групай, гуртком і пад. *Зладзейскае а. Школьнае а.* ‖ *прым.* **аргаты́чны**, -ая, -ае.

**АРГО́Н**, -у, *м.* Хімічны элемент, газ без колеру і паху (дае сіняватае свячэнне, выкарыстоўваецца ў светлавых рэкламах). ‖ *прым.* **арго́навы**, -ая, -ае.

**АРГУМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Лагічны довад, доказ. *Важкі а.* **2.** У матэматыцы: незалежная пераменная велічыня, ад змены якой залежыць змена другой велічыні (функцыі).

**АРГУМЕНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак.*, *што.* Прывесці (прыводзіць) доказы, аргументы (у 1 знач.). ‖ *наз.* **аргумента́цыя**, -і, *ж.*

**АРГУМЕНТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* аргументаваць. **2.** Сукупнасць аргументаў (у 1 знач.). *Лагічная а.* ‖ *прым.* **аргументацы́йны**, -ая, -ае.

**АРДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *мн.* о́рды, орд *і* о́рдаў, *ж.* **1.** *гіст.* Назва дзяржаўнага аб'яднання ў старажытных цюркскіх вандроўных народаў. *Залатая а.* **2.** *перан.* Варожае войска; натоўп, банда, зграя. *Фашысцкія орды.* ‖ *прым.* **арды́нскі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**АРДЫНА́РАЦ**, -рца, *мн.* -рцы, -рцаў, *м.* Ваеннаслужачы пры камандзіру або пры штабе для службовых даручэнняў. ‖ *прым.* **ардына́рачны**, -ая, -ае.

**АРДЫНА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які нічым асаблівым не вызначаецца, звычайны (кніжн.). **2.** У назвах вучоных пасад: штатны; *проціл.* экстраардынарны (уст.). *А. прафесар.*

**АРДЫНА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач, які лечыць у бальніцы, клініцы і пад. пад кіраўніцтвам загадчыка аддзялення. ‖ *прым.* **ардына́тарскі**, -ая, -ае.

**АРДЫНА́ТАРСКАЯ**, -ай, *мн.* -ія, -іх, *ж.* У лячэбнай установе: пакой для ўрачоў.

**АРДЫНАТУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Пасада ардынатара або ардынарнага прафесара. **2.** Род практычнай медыцынскай аспірантуры. *Клінічная а.*

**АРДЫ́НСКІ** *гл.* арда.

**АРДЭНАНО́СЕЦ**, -но́сца, *мн.* -но́сцы, -но́сцаў, *м.* Чалавек або арганізацыя, узнагароджаныя ордэнам[1].

**АРДЭНАНО́СНЫ**, -ая, -ае. Узнагароджаны ордэнам[1]. *Ардэнаносная рэспубліка.*

**АР'ЕРГА́РД**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Частка войска (або флоту), якая знаходзіцца ззаду галоўных сіл пры паходзе і забяспечвае надзейнасць тылу. ‖ *прым.* **ар'ерга́рдны**, -ая, -ае.

**АРЖА́НІШЧА**, -а, *н.* Тое, што і *іржышча.*

**АРЖАНЫ́**, -а́я, -о́е. Тое, што і *жытні. А. хлеб.*

**А́РКА**, -і, *ДМ* а́рцы, *мн.* -і, а́рак, *ж.* **1.** Дугападобнае перакрыцце праёма ў сцяне (акна, дзвярэй) або пралёта паміж дзвюма апорамі і пад. **2.** Збудаванне ў выглядзе вялікіх варот такой формы як элемент дэкору. *Трыумфальная а.* ‖ *прым.* **а́рачны**, -ая, -ае.

**АРКА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ка́д, *ж.* Шэраг аднолькавых па форме і велічыні арак, якія апіраюцца на слупы або калоны і складаюць архітэктурнае цэлае.

**АРКА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Доўгая вяроўка з рухомай пятлёй на канцы для лоўлі коней і іншых жывёлін; ласо. ‖ *прым.* **арка́нны**, -ая, -ае.

**АРКА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.*, *каго-што.* Лавіць арканам. ‖ *зак.* **заарка́ніць**, -ню, -ніш, -ніць; -ка́нь; -нены.

**АРКЕ́СТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сукупнасць музычных інструментаў для выканання музычных твораў; калектыў музыкантаў, якія разам выконваюць твор на розных інструментах. *Духавы а. Струнны а.* **2.** Месца ў тэатры перад сцэнай, дзе знаходзяцца музыканты. ‖ *прым.* **арке́стравы**, -ая, -ае.

**АРКЕСТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак.*, *што* (спец.). Зрабіць (рабіць) аркестроўку чаго-н.

**АРКЕСТРА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант з аркестра. ‖ *ж.* **аркестра́нтка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **аркестра́нцкі**, -ая, -ае.

**АРКЕСТРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* (спец.). Выклад музычнага твора для выканання аркестрам або інструментальным ансамблем; інструментоўка.

**А́РКТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* (з вялікай літары). Паўночная палярная вобласць зямнога шара. ‖ *прым.* **аркты́чны**, -ая, -ае.

**А́РКУШ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Стандартны (тонкі, плоскі) кавалак паперы. *А. са сшытка.* **2.** Адзінка вымярэння аб'ёму друкаванага тэксту (спец.). ○ **Аўтарскі аркуш** — 40000 друкарскіх знакаў з прабеламі. ‖ *прым.* **а́ркушны**, -ая, -ае.

**АРЛА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйная драпежная птушка сямейства ястрабіных; марскі арол. ‖ *прым.* **арла́навы**, -ая, -ае.

**АРЛЕКІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Традыцыйны персанаж італьянскай «камедыі масак», паяц, камедыянт. ‖ *прым.* **арлекі́нскі**, -ая, -ае.

**АРЛЕКІНА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -на́д, *ж.* Камедыя з арлекінам у галоўнай ролі. ‖ *прым.* **арлекіна́дны**, -ая, -ае.

**АРЛЕ́Ц**, -ляцу́, *м.* (разм.). Мінерал вішнёва-ружовага колеру; раданіт.

**АРЛІ́НЫ** *гл.* арол.

**АРЛІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -лі́ц, *ж.* Самка арла.

**АРЛЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Старая гульня, сэнс якой у адгадцы: ляжа падкінутая манета гербавым малюнкам (арлом) ці процілеглым бокам (рэшкай).

**АРЛЯНЯ́** *і* **АРЛЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Птушаня арла.

**АРМА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ма́д, *ж.* Вялікая колькасць караблёў, самалётаў, танкаў, якія дзейнічаюць узгоднена. *А. караблёў.*

**АРМАТУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** *зб.* Прылады і прыналежнасці якога-н. апарата, машыны і пад. **2.** Сталёвы каркас жалезабетонных збудаванняў (спец.). ‖ *прым.* **армату́рны**, -ая, -ае.

**АРМАТУ́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па збудаванні арматуры (у 2 знач.). ‖ *ж.* **армату́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **армату́ршчыцкі**, -ая, -ае.

**АРМЕ́ЕЦ**, -ме́йца, *мн.* -ме́йцы, -ме́йцаў, *м.* Ваеннаслужачы арміі (у 1 і 2 знач.).

**А́РМІЯ**, -і, *мн.* -міі, -мій, *ж.* **1.** Сукупнасць узброеных сіл дзяржавы. *Служыць у арміі. Дзеючая а.* (войска, якое ў час вайны знаходзіцца на фронце). **2.** Сухапутныя ўзброеныя сілы ў адрозненне ад марскіх і паветраных сіл. **3.** Аператыўнае вайсковае аб'яднанне з некалькіх карпусоў, дывізій аднаго або некалькіх родаў войск. *Танкавая а.* **4.** *перан., каго.* Наогул — вялікая колькасць нечым аб'яднаных людзей. *А. настаўнікаў. А. змагароў за мір.* ‖ *прым.* **арме́йскі**, -ая, -ае (да 1—3 знач.).

**АРМЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Старадаўняе сялянскае верхняе адзенне з тоўстага саматканага сукна ў выглядзе світкі; кафтан. ‖ *прым.* **армя́чны**, -ая, -ае.

**АРМЯ́НЕ**, -мя́н, *адз.* -мяні́н, -а, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Арменіі. ‖ *ж.* **армя́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **армя́нскі**, -ая, -ае.

**АРНА́МЕНТ**, -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Узор, жывапіснае графічнае ўпрыгожанне, у аснове якога ляжаць геаметрычныя, раслінныя і жывёльныя матывы, што паўтараюцца ў пэўным парадку. *Беларускі а.* **2.** У музыцы: упрыгожанне мелодый, напр. трэль. ‖ *прым.* **арна́ментны**, -ая, -ае *і* **арнамента́льны**, -ая, -ае.

**АРНАМЕНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Упрыгожыць (упрыгожваць) арнаментам. *А. сцены дома.* ‖ *наз.* **арнамента́цыя**, -і, *ж.*

**АРНАМЕНТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* арнамент. **2.** З многімі ўпрыгажэннямі, мудрагелісты. *А. стыль.* ‖ *наз.* **арнамента́льнасць**, -і, *ж.*

**АРНІТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел заалогіі, які вывучае птушак. ‖ *прым.* **арніталагі́чны**, -ая, -ае.

**АРО́Л**, арла́, *мн.* арлы́, арло́ў, *м.* **1.** Драпежная, дужая птушка з загнутай дзюбай сямейства ястрабіных, якая звычайна жыве ў гарыстай мясцовасці або ў стэпе. *Стэпавы а. Арлу з савою не па дарозе* (прымаўка). **2.** *перан.* Пра смелага, гордага чалавека. *Зірні на сваіх арлоў! Якія слаўныя хлопцы!* ◊ **Арол ці рэшка?** (разм.) — пытанне пры падкідванні манеты з мэтай вырашыць што-н. жэрабем. ‖ *прым.* **арлі́ны**, -ая, -ае. *А. погляд* (смелы, горды, праніклівы). *А. нос* (тонкі, кручкаваты нос).

**АРСЕНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Склад зброі і ваеннай амуніцыі. *А. крэпасці.* **2.** Прадпрыемства, якое вырабляе зброю і ваенную амуніцыю (уст.). **3.** *перан.* Запас, вялікая колькасць чаго-н. *А. ведаў.* ‖ *прым.* **арсена́льны**, -ая, -ае.

**АРТ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. артылерыйскі, напр.: *артабстрэл, артпадрыхтоўка, артполк.*

**АРТАДАКСА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які няўхільна прытрымліваецца асноў якога-н. вучэння, светапогляду, паслядоўны. *Артадаксальныя погляды.* ‖ *наз.* **артадакса́льнасць**, -і, *ж.*

**АРТАДО́КС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Чалавек артадаксальных поглядаў.

**АРТАДО́КСІЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Артадаксальная прыхільнасць да якога-н. вучэння.

**АРТАПЕ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач, спецыяліст па артапедыі.

**АРТАПЕ́ДЫЯ**, -і, *ж.* Раздзел хірургіі, які займаецца прафілактыкай і лячэннем дэфармацый пазваночніка, канечнасцей. ‖ *прым.* **артапеды́чны**, -ая, -ае. *А. абутак.*

**АРТРЫ́Т**, -у, *М* -ры́це, *м.* Запаленне суставаў інфекцыйнага паходжання. *Рэўматычны а. Інфекцыйны а.*

**АРТЫ́КЛЬ**, -я, *мн.* -лі, -ляў, *м.* У граматыцы некаторых моў — часціца, якая дадаецца да назоўніка для адрознення яго роду, пэўнасці і няпэўнасці.

**АРТЫКУЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Невялікі навуковы або публіцыстычны твор у часопісе, газеце, зборніку. *Крытычны а.* **2.** Самастойны раздзел, параграф у юрыдычным дакуменце, слоўніку і пад. *А. канстытуцыі. Слоўнікавы а.* **3.** Раздзел фінансавага плана, каштарыс, які вызначае крыніцу даходаў або мэту расходаў (спец.). *Расходны а.* **4.** Тып вырабу, умоўнае абазначэнне тавараў (спец.). *А. тканіны.* ‖ *прым.* **арты́кульны**, -ая, -ае.

**АРТЫКУЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Работа органаў маўленчага апарату, неабходная для вымаўлення пэўнага гука, а таксама іх становішча пры вымаўленні таго ці іншага гука. ‖ *прым.* **артыкуляцы́йны**, -ая, -ае.

**АРТЫЛЕРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ваеннаслужачы ў артылерыі.

**АРТЫЛЕ́РЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Агнястрэльнае ўзбраенне (гарматы, гаўбіцы, мінамёты і пад.). *Супрацьтанкавая а. Цяжкая а.* **2.** Род войск з такім узбраеннем. *Служыць у артылерыі.* **3.** Навука, якая вывучае тэхніку агнястрэльнай зброі (гармат, гаўбіц і пад.) і яе прымяненне. ‖ *прым.* **артылеры́йскі**, -ая, -ае.

**АРТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, хто займаецца публічным выкананнем твораў мастацтва (акцёр, спявак, музыкант і пад.). *Эстрадны а. Артысты цырка. Оперны а. Заслужаны а.* **2.** *перан.* Пра таго, хто валодае высокім майстэрствам у якой-н. галіне (разм.). *Гэта ж а. у сваёй справе.* ‖ *ж.* **арты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 1 знач.). ‖ *прым.* **артысты́чны**, -ая, -ае. *Артыстычнае фае.*

**АРТЫСТЫ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Высокае майстэрства ў мастацтве, віртуознасць у рабоце.

**АРТЫСТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* артыст. **2.** Уласцівы артысту. *А. характар. Артыстычныя схільнасці.* **3.** Вельмі ўмелы, майстэрскі. *Артыстычная работа. Заданне выканана артыстычна* (прысл.). ‖ *наз.* **артысты́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**АРТЫШО́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Травяністая расліна з буйнымі фіялетавымі суквеццямі, ніжнія мясістыя часткі якіх ядомыя. ‖ *прым.* **артышо́кавы**, -ая, -ае.

**АРТЭЗІЯ́НСКІ**, -ая, -ае. Заключаны ў глыбокіх ваданосных слаях пад натуральным ціскам; глыбінны. *А. калодзеж. Артэзіянскія воды.*

**АРТЭ́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* **1.** Крывяносны сасуд, які нясе кроў ад сэрца ва ўсе часткі цела. **2.** *перан.* Шлях зносін (высок.). *Водныя артэрыі.* ‖ *прым.* **артэрыя́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *А. ціск.*

**АРТЭРЫЯСКЛЕРО́З**, -у, *м.* Хранічнае захворванне артэрый.

**АРУ́ДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; *незак.* (разм.). **1.** *чым.* Дзейнічаць пры дапамозе чаго-н. *А. лапатай.* **2.** Распараджацца, праяўляць дзейнасць (звычайна адмоўную), кіраваць чым-н., гаспадарыць дзе-н. *На дачы арудаваў злодзей.*

**А́РФА**[1], -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Шчыпковы музычны інструмент у выглядзе вялікай трохвугольнай рамы з нацягнутымі на ёй струнамі. ‖ *прым.* **а́рфавы**, -ая, -ае.

**А́РФА**[2], -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Сельскагаспадарчая машына для ачысткі збожжа ад мякіны, пылу і пад. пасля малацьбы; веялка. ‖ *прым.* **а́рфавы**, -ая, -ае.

**АРФАВА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто працуе на арфе[2]. ‖ *ж.* **арфава́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**АРФАВА́НЫ**, -ая, -ае. Ачышчаны арфаваннем. *А. ячмень.*

**АРФАВА́ЦЬ**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны; *незак., што* і *без дап.* Ачышчаць арфай зерне ад мякіны, пылу і пад. *А. жыта.* ‖ *зак.* **праарфава́ць**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны. ‖ *наз.* **арфава́нне**, -я, *н.*

**АРФАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* **1.** Правілы напісання слоў і іх форм; правапіс. **2.** Само такое правільнае напісанне, ступень яго засваення. *У яго а. кульгае* (ён піша з памылкамі). ‖ *прым.* **арфаграфі́чны**, -ая, -ае. *Арфаграфічная памылка.*

**АРФАЭ́ПІЯ**, -і, *ж.* **1.** Сістэма правіл, якія вызначаюць правільнае літаратурнае вымаўленне. **2.** Ступень засваення правіл вымаўлення. ‖ *прым.* **арфаэпі́чны**, -ая, -ае. *Арфаэпічныя нормы.*

**АРФІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на арфе[1]. ‖ *ж.* **арфі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АРХАІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Зрабіць (рабіць) архаічным, устарэлым паводле стылю, манеры творчасці. ‖ *наз.* **архаіза́цыя**, -і, *ж.*

**АРХАІ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Слова, моўны выраз або граматычная форма, якія ўстарэлі і выйшлі з агульнага ўжывання. *Лексіка-фанетычны а.* **2.** Перажытак мінулага.

**АРХА́ІКА**, -і, *ДМ* -іцы, *ж.* Пра што-н. старое, старадаўняе.

**АРХАІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які ўяўляе сабою архаізм, уласцівы даўніне; старадаўні, устарэлы. *А. стыль.* ‖ *наз.* **архаі́чнасць**, -і, *ж.*

**АРХА́НГЕЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У хрысціянскай рэлігіі: анёл вышэйшага рангу. ‖ *прым.* **арха́нгельскі**, -ая, -ае.

**АРХА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дзікі горны баран з закручанымі рагамі.

**АРХА́РАВЕЦ**, -раўца, *мн.* -раўцы, -раўцаў, *м.* (разм.). Буян, свавольнік.

**АРХЕАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Гістарычная навука, якая займаецца апісаннем і выданнем пісьмовых помнікаў мінулага. ‖ *прым.* **археаграфі́чны**, -ая, -ае.

**АРХЕАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая вывучае гісторыю, быт і культуру старажытных народаў па рэчавых, матэрыяльных помніках, што захаваліся да нашага часу. ‖ *прым.* **археалагі́чны**, -ая, -ае. *Археалагічныя раскопкі.*

**АРХЕО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па археаграфіі.

**АРХЕО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па археалогіі.

**АРХІ...** Прыстаўка са знач. вышэйшай і найвышэйшай ступені прыкметы, якая названа ў другой частцы слова, напр.: *архімільянер, архіважны, архірэакцыйны.*

**АРХІБІ́СКУП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Каталіцкае духоўнае званне; тое, што і *архіепіскап.* ‖ *прым.* **архібі́скупскі**, -ая, -ае.

**АРХІВА́РЫУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Супрацоўнік архіва, хавальнік яго фондаў.

**АРХІВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па архіўнай справе. ‖ *ж.* **архіві́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АРХІДЭ́Я**, -і, *мн.* -і, -дэ́й, *ж.* Шматгадовая травяністая трапічная расліна з пахучымі кветкамі дзівоснай формы і афарбоўкі. ‖ *прым.* **архідэ́йны**, -ая, -ае.

**АРХІЕПІ́СКАП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Епіскап, які вядзе нагляд за некалькімі епархіямі; наогул ганаровы тытул епіскапа, а таксама асоба, якая мае гэты тытул. ‖ *прым.* **архіепі́скапскі**, -ая, -ае.

**АРХІМАНДРЫ́Т**, -а, *М* -ры́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вышэйшае духоўнае званне для манахаў, тытул святара-манаха, звычайна настаяцеля мужчынскага манастыра, а таксама асоба, якая мае гэта званне. ‖ *прым.* **архімандры́цкі**, -ая, -ае.

**АРХІПЕЛА́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Група марскіх астравоў, размешчаных на блізкай адлегласці адзін ад аднаго. ‖ *прым.* **архіпела́гавы**, -ая, -ае.

**АРХІРЭ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Агульная назва вышэйшых чыноў праваслаўнага духавенства (епіскапа, архіепіскапа, мітрапаліта). ‖ *прым.* **архірэ́йскі**, -ая, -ае.

**АРХІТЭ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па архітэктуры; дойлід. ‖ *прым.* **архітэ́ктарскі**, -ая, -ае.

**АРХІТЭКТО́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* (спец.). Будова мастацкага твора, арганічная ўзаемасувязь яго галоўных і другарадных элементаў; кампазіцыя. *А. рамана.* ‖ *прым.* **архітэктані́чны**, -ая, -ае.

**АРХІТЭКТУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Майстэрства праектавання, пабудовы і мастацкага афармлення будынкаў; дойлідства. *А. старажытных грэкаў.* **2.** Стыль пабудовы. *А. дома.* **3.** *зб.* Будынкі, збудаванні. ‖ *прым.* **архітэкту́рны**, -ая, -ае.

**АРХІ́Ў**, -хі́ва, *мн.* -хі́вы, -хі́ваў, *м.* **1.** Установа, якая зберагае, сістэматызуе і апісвае старадаўнія дакументы, графічныя помнікі мінулага. *Здаць у а.* (таксама перан.: прызнаць устарэлым, малапатрэбным). **2.** Аддзел установы, дзе захоўваюцца старыя дакументы. **3.** Збор рукапісаў, лістоў і пад., што маюць дачыненне да дзейнасці якой-н. установы ці асобы. *А. інстытута. А. Якуба Коласа.* ‖ *прым.* **архі́ўны**, -ая, -ае.

**АРЦЕ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Адна з форм вытворчага аб'яднання грамадзян для вядзення калектыўнай гаспадаркі на аснове абагульнення сродкаў вытворчасці. *Рыбалавецкая а. Сельскагаспадарчая а.* **2.** Аб'яднанне асоб некаторых прафесій для сумеснай работы з удзелам у агульных даходах і агульнай адказнасцю. *А. грузчыкаў.* ‖ *прым.* **арце́льны**, -ая, -ае. *Арцельная гаспадарка.*

**АРЦЕ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Член арцелі (у 2 знач.) ‖ *ж.* **арце́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **арце́льшчыцкі**, -ая, -ае.

**АРШЫ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Старая мера даўжыні, роўная 71,12 см, якой карысталіся ў Беларусі, Расіі да ўвядзення метрычнай сістэмы. **2.** Лінейка, планка такой даўжыні для мерання. ◊ **Мераць на свой аршын** — меркаваць пра што-н. са свайго пункту погляду, аднабакова (разм.). **Нібы (быццам) аршын праглынуў** — пра чалавека, які стаіць або сядзіць ненатуральна прама (разм.). **Аршын з шапкаю** — пра малога, невысокага чалавека (разм.). ‖ *прым.* **аршы́нны**, -ая, -ае. *Пісаць аршыннымі літарамі* (надта вялікімі; жарт.).

**АРЫГІНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тое, што з'яўляецца прадметам узнаўлення, капіравання, аўтэнтык. *Зверыць з арыгіналам. Чытаць у арыгінале. А. артыкула* (рукапіс, з якога робіцца набор). **2.** Непадобны да іншых, своеасаблівы чалавек, дзівак (разм.). *Ён вялікі а.* ‖ *ж.* **арыгіна́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак (да 2 знач.).

**АРЫГІНА́ЛЬНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Трымаць сябе арыгіналам (у 2 знач.), старацца быць непадобным да іншых. ‖ *зак.* **зарыгіна́льнічаць**, -аю, -аеш, -ае.

**АРЫГІНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Не запазычаны, не перакладны, аўтэнтычны. *А. рукапіс.* **2.** Створаны ў выніку самастойнай творчасці. *Арыгінальнае рашэнне задачы.* **3.** Своеасаблівы, непадобны да іншых, дзіўны. *Арыгінальныя паводзіны. Арыгінальна* (прысл.) *апранацца.* ‖ *наз.* **арыгіна́льнасць**, -і, *ж.*

**АРЫЕНТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *незак.* **1.** Вызначаць сваё месцазнаходжанне або кірунак руху. *А. у вялікім лесе. А. у новых абставінах* (перан.). **2.** *на каго-што.* Вызначаць, браць кірунак на каго-, што-н. *А. на маяк. А. на шырокага чытача* (перан.). **3.** *перан.* Разбірацца ў чым-н. ‖ *зак.* **зарыентава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся. ‖ *наз.* **арыенціро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **арыентава́нне**, -я, *н.*

**АРЫЕНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -туе, -ту́й; -тава́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Даваць магчымасць каму-, чаму-н. вызначыць сваё месцазнаходжанне на мясцовасці або кірунак руху. *А. касмічны апарат у палёце.* **2.** *каго-што, на што* і *ў чым.* Накіроўваць на дасягненне якой-н. мэты, дапамагаць каму-н. разабрацца ў чым-н. (кніжн.). *А. даследчыкаў на выкарыстанне новых дакументаў.* ‖ *зак.* **зарыентава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны.‖ *наз.* **арыенціро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **арыентава́нне**, -я, *н.*

**АРЫЕНТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Усходні, уласцівы краінам Усходу. *А. стыль.*

**АРЫЕНТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Уменне вызначыць сваё месцазнаходжанне. *А. на мясцовасці.* **2.** Дасведчанасць у чым-н. (кніжн.). *А. ў новай літаратуры. А. ў пытаннях палітыкі.* **3.** *на каго-што* і *якая.* Накіраванасць дзейнасці ў інтарэсах каго-, чаго-н. (кніжн.). *А. на перадавую моладзь.*

**АРЫЕНЦІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прадмет, на які арыентуюцца. *Выбраць правільны а.* ‖ *прым.* **арыенці́рны**, -ая, -ае.

**АРЫЕНЦІРО́ВАЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які служыць для арыенціроўкі. *А. палёт.* **2.** Прыблізны, папярэдні. *А. тэрмін.*

**АРЫЁЗА**, *нескл., н.* Невялікая лірычная арыя, якая чаргуецца з рэчытатывам. ‖ *прым.* **арыёзны**, -ая, -ае.

**АРЫ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У Сярэдняй Азіі: арашальны канал, канава. ‖ *прым.* **ары́чны**, -ая, -ае.

**АРЫСТАКРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая належыць да арыстакратыі (у 1 знач.). ‖ *ж.* **арыстакра́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **арыстакра́цкі**, -ая, -ае (разм.).

**АРЫСТАКРАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Манера паводзін, знешняя вытанчанасць, характэрныя арыстакратам. ‖ *прым.* **арыстак-**

**ратычны**, -ая, -ае. *А. выгляд. Арыстакратычныя манеры.*

**АРЫСТАКРАТЫЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* арыстакратыя, арыстакратызм. **2.** Прасякнуты арыстакратызмам, уласцівы арыстакрату; вытанчаны. ‖ *наз.* **арыстакратычнасць**, -і, *ж.*

**АРЫСТАКРАТЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Прывілеяванае саслоўе, вышэйшы радавіты слой грамадства, радавая знаць. **2.** *перан.* Прывілеяваная частка грамадства або сацыяльнай групы. *Фінансавая а.* ‖ *прым.* **арыстакратычны**, -ая, -ае.

**АРЫТМІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Парушэнне сардэчнага рытму, перабоі. ‖ *прым.* **арытмічны**, -ая, -ае.

**АРЫФМЕТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Раздзел матэматыкі, які вывучае прасцейшыя ўласцівасці лікаў, выражаных лічбамі, дзеянні, што робяцца з імі. **2.** *перан.* Тое, што і *падлік* (у 2 знач.; разм.). *Такая атрымліваецца а.* ‖ *прым.* **арыфметычны**, -ая, -ае.

**АРЫФМОМЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Настольная лічыльная машына для механічнага выканання арыфметычных дзеянняў.

**АРЫШТ**, -у, *М* -шце, *м.* **1.** Узяцце пад варту, пазбаўленне волі. *Пазбегнуць арышту.* **2.** Забарона судовымі органамі распараджацца чым-н. *Накласці а. на маёмасць.* ‖ *прым.* **арыштны**, -ая, -ае. *Арыштнае памяшканне.*

**АРЫШТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; -таваны; *зак., каго-што.* Пазбавіць каго-н. волі з узяццем пад варту або накласці арышт на што-н. ‖ *незак.* **арыштоўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АРЫШТАНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які знаходзіцца пад арыштам. ‖ *ж.* **арыштантка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **арыштанцкі**, -ая, -ае.

**АРЫЯ**, -і, *мн.* -і, арый, *ж.* Партыя для аднаго голасу (пераважна ў оперы, аперэце) або для аднаго інструмента, а таксама самастойная вакальная ці інструментальная п'еса.

**АРЭАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Частка зямной або воднай паверхні, у межах якой сустракаецца той або іншы від (род, сямейства і пад.) жывёльнага ці расліннага свету. **2.** Тэрыторыя пашырэння якіх-н. з'яў, прадметаў і г.д. *А. дысімілятыўнага акання.* ‖ *прым.* **арэальны**, -ая, -ае.

**АРЭАПАГ**, -а, *м.* (кніжн.). **1.** Вышэйшы орган судовай і палітычнай улады ў старажытных Афінах. **2.** *перан.* Сход аўтарытэтных асоб для рашэння якіх-н. пытанняў (іран.). *Вучоны а.*

**АРЭЛІ**, -яў. Збудаванне, на якім гушкаюцца для забавы; гушкалка. ‖ *прым.* **арэльны**, -ая, -ае.

**АРЭНА**, -ы, *ж., мн.* -ы, арэн. **1.** Вялікая круглая пляцоўка пасярэдзіне цырка, на якой выступаюць артысты. **2.** *перан.* Галіна, ніва дзейнасці (кніжн.). *Дзейнасць на міжнароднай арэне. Літаратурная а.* ‖ *прым.* **арэнны**, -ая, -ае.

**АРЭНДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** Наём памяшкання, зямельнага ўчастка і пад. ў часовае карыстанне. *Здаць у арэнду.* **2.** Плата за такі наём. *Плаціць арэнду.* ‖ *прым.* **арэндны**, -ая, -ае.

**АРЭОЛ**, -а, *м.* **1.** Светлавы круг, ззянне вакол ярка асветленага прадмета, а таксама на фатаграфіі такога прадмета (спец.). **2.** *перан.* Гонар, пашана вакол каго-н. (высок.). *Быць у арэоле славы.*

**АРЭОМЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор, пры дапамозе якога вызначаецца шчыльнасць вадкасці, а таксама канцэнтрацыі рэчываў у растворах.

**АРЭХ**, -а *і* -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** -а. Плод некаторых дрэў, кустоў з ядомым ядром у цвёрдай шкарлупіне. *Кедравыя арэхі. Какосавы а. Смачны жабе а., ды зубоў бог не даў* (прыказка). **2.** -у. Дрэва, куст, якія даюць такія плады, а таксама цвёрдая драўніна, што ідзе на сталярныя вырабы. *Мэбля з арэху.* ◊ **Пад арэх вырабіць** (разм.) — зрабіць што-н. вельмі добра. **Зарабіць на арэхі** — пра вымову, пакаранне. ‖ *памянш.* **арэшак**, -шка, *мн.* -шкі, -шкаў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **арэхавы**, -ая, -ае. *А. стол. А. торт* (з арэхамі).

**АРЭЧАВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -віцца; *зак.* (кніжн.). Выразіцца ў чым-н. матэрыяльным, рэальным. *Лічбы арэчавіліся ў прадукцыі.* ‖ *незак.* **арэчаўлівацца**, -аецца. ‖ *наз.* **арэчаўленне**, -я, *н.*

**АРЭЧАВІЦЬ**, -чаўлю, -чавіш, -чавіць; -чаўлены; *зак., што* (кніжн.). Выразіць у чым-н. матэрыяльным. ‖ *незак.* **арэчаўліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **арэчаўленне**, -я, *н.*

**АРЭШНІК**, -у, *м.* Кусты з ядомымі пладамі-арэхамі, а таксама зараснік такіх раслін; ляшчыннік. *Разросся а. на паляне.* ‖ *прым.* **арэшнікавы**, -ая, -ае.

**АРЭШЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -шын, *ж.* **1.** Лісцевае дрэва, на якім растуць лясныя арэхі; ляшчына. **2.** толькі *адз.* Драўніна гэтай расліны. *Вырабы з арэшыны.*

**АС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Выдатны лётчык, майстар паветранага бою. *Лётчыкі-асы.* **2.** Вялікі майстар сваёй справы. *Ас у сваёй справе.*

**АСА**, -ы, *мн.* восы, -аў, *ж.* Перапончатакрылае насякомае з джалам. ◊ **Асой у вочы кідацца** — назойліва прыставаць, дакучаць. ‖ *прым.* **асіны**, -ая, -ае. *Асінае гняздо* (таксама перан.: пра зборышча шкодных людзей, ворагаў і пад.).

**АСАБІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які належыць, уласцівы якой-н. асобе, прызначаны для абслугі якой-н. асобы. *Асабістая бібліятэка. Асабістая думка.* **2.** Які датычыцца якой-н. асобы, закранае яе інтарэсы, накіраваны на якую-н. асобу, звязаны з прыватным, сямейным жыццём. *Асабістая крыўда. Асабістае шчасце. Спалучэнне асабістага* (наз.) *з грамадскім.* **3.** Які ажыццяўляецца якой-н. асобай, зыходзіць ад якой-н. асобы. *А. прыклад. Асабістая ініцыятыва.*

**АСАБЛІВАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Характэрная прымета, адметная якасць, уласцівасць каго-, чаго-н. *А. дзіцячага характару. Асаблівасці правапісу беларускай мовы.*

**АСАБЛІВЫ**, -ая, -ае. Адметны, не такі, як усе; больш значны, чым звычайна. *Асаблівае стараннe.*

**АСАБНЯК**, -а, *мн.* -і, -оў, *м.* Добраўпарадкаваны дом гарадскога тыпу, прызначаны для адной сям'і.

**АСАБОВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* асоба. **2.** Які мае адносіны да пэўнай асобы, пэўных асоб. ○ **Асабовы рахунак** — рахунак у банку, адкрыты на імя пэўнай асобы. **Асабовая справа** — папка з дакументамі якой-н. асобы, што працуе ў пэўнай установе. **Асабовы склад (састаў)** — рабочыя, служачыя якой-н. установы, вайсковай часці і пад.

**АСАВЕЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Напаўсонны, расслаблены, напаўпрытомны. *Асавелыя вочы.* ‖ *наз.* **асавеласць**, -і, *ж.*

**АСАВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* (разм.). Стаць санлівым, расслабленым.

**АСАВІК**, -а, *мн.* -і, -оў, *м.* Падасінавік. *Кош асавікоў.*

**АСАДА**[1], -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Акружэнне войскамі ўмацаванага пункта з мэтай яго захопу; аблога. *А. горада.* ‖ *прым.* **асадны**, -ая, -ае. *Асаднае становішча* (надзвычайныя меры для падтрымання парадку ў ваенны час).

**АСАДА**[2], -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** *гл.* асадзіць[1]. **2.** Дзяржанне ў прыладах працы, інструментах. *А. малатка. А. сякеры.* **3.** Рамка. *Карціна ў дарагой асадзе.*

**АСАДАК**, -дку, *м.* **1.** Дробныя цвёрдыя часцінкі, якія знаходзяцца ў вадкасці і пасля адстойвання асядаюць на дно і сценкі пасудзіны. *А. у растворы.* **2.** *перан.* Цяжкае пачуццё, якое застаецца пасля непрыемнай размовы, падзеі і г.д. *Непрыемны а. на душы.* ‖ *прым.* **асадкавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**АСАДЗІЦЬ**[1], асаджу, асадзіш, асадзіць; асаджаны; *зак., што.* Умацаваць што-н. на чым-н., прымацаваць, уставіць у аправу, у рамку. *А. касу. А. карціну.* ‖ *незак.* **асаджваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АСАДЗІЦЬ**[2], асаджу, асадзіш, асадзіць; асаджаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Спыніць, прымусіць падацца назад. *А. каня.* **2.** *што.* Прымусіць апасці, апусціцца ўніз. *Дождж асадзіў пыл на дарозе.* **3.** *перан., каго-што.* Даць адпор каму-н., прымусіць змоўкнуць, змяніць тон, абарваць (разм.). **4.** *разм.* Зваліць ударам. ◊ **Асадзі назад!** — прыпыніся, дай прайсці; прэч (як патрабаванне пазбавіцца ад каго- ці чаго-н.). ‖ *незак.* **асаджваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АСАДЗІЦЬ**[3], асаджу, асадзіш, асадзіць; асаджаны; *зак.* **1.** *што.* Акружыць умацаваны пункт войскам. *А. крэпасць. А. горад.* **2.** *перан., каго-што.* Прыстаць з просьба-

што прысылаюць, даюць, прапаноўваюць, уручаюць, прысвойваюць. *А. пісьмо. А. зарплату. А. падзяку. А. кватэру. А. вучонае званне.* **2.** *што.* Прыняць да выканання, набыць права на выкананне чаго-н. *А. загад. А. слова.* **3.** *што.* Здабыць, вынайсці ў працэсе пошукаў. *А. бензін з нафты.* **4.** *што.* Зазнаць, адчуць. *А. задавальненне.* **5.** *што.* Захварэць на што-н. *А. насмарк.* **6.** *што.* Стаць шырока вядомым. *А. прызнанне.* **7.** Аказацца пабітым (разм.). *А. па руках.* ‖ *незак.* **атры́млівацъ**, -аю, -аеш, -ае *і* **атрымо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **атрыма́нне**, -я, *н.* (да 1—4 знач.).

**АТРЭ́П'Е**, -я, *н., зб.* **1.** Адыходы, якія атрымліваюцца пры трапанні лёну, пянькі. *Сабраць а.* **2.** Старое, зношанае адзенне. *Хадзіць у атрэп'і.*

**АТРЭ́СЦІ**, атрасу́, атрасе́ш, атрасе́; атрасём, атрасяце́, атрасу́ць; атро́с, атрэ́сла; атрасі́; атрэ́сены; *зак., што.* Трасучы, ачысціць, зняць што-н.; абкалаціць, абабіць. *А. снег з ботаў. А. яблыню.* ‖ *незак.* **атраса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АТРЭ́СЦІСЯ**, атрасу́ся, атрасе́шся, атрасе́цца; атрасёмся, атрасяце́ся, атрасу́цца; атро́сся, атрэ́слася; атрасі́ся; *зак.* Вытрасаючы што-н., ачысціцца ад чаго-н. *А. ад пылу.* ‖ *незак.* **атраса́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АТУ́**, *выкл.* (спец.). Каманда сабакам на паляванні, якая азначае: бяры, лаві, хапай. *Ату яго!*

**АТУЛІ́ЦЦА**, атулю́ся,ату́лішся,ату́ліцца; *зак.* **1.** Ахінуцца, агарнуцца з усіх бакоў. *А. хусткай.* **2.** *перан.* Абвалачыся. *Сівым туманам атулілася балота.* ‖ *незак.* **атуля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца *і* **ату́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АТУЛІ́ЦЬ**, атулю́, ату́ліш, ату́ліць; ату́лены; *зак., каго-што.* **1.** Ахінуць, агарнуць з усіх бакоў. *А. коўдраю.* **2.** *перан.* Абвалачы чым-н. *Цішыня атуліла вёску.* ‖ *незак.* **атуля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **ату́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АТУПЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які страціў здольнасць разумець што-н., разважаць; які выяўляе атупенне сваім знешнім выглядам. *Атупелая галава.* ‖ *наз.* **атупе́ласць**, -і, *ж.*

**АТУПЕ́ЦЬ** *гл.* тупець.

**АТУХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *незак.* Тое, што і *тухнуць*[1]. *Агонь атухае. Атухаюць сілы* (перан.).

**АТУ́ХНУЦЬ** *гл.* тухнуць[1].

**АТУШЫ́ЦЬ** *гл.* тушыць[1].

**АТЫНКАВА́ЦЬ** *гл.* тынкаваць.

**АТЫНКО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** Тое, што і *тынк.* **2.** Тое, што і *тынкоўка.*

**АТЫНКО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *тынкоўшчык.* ‖ *ж.* **атынко́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**АТЫЧКАВА́ЦЬ** *гл.* тычкаваць.

**АТЭІ́ЗМ**, -у, *м.* Адмаўленне існавання Бога, адказ ад рэлігійных вераванняў; бязбожжа. ‖ *прым.* **атэісты́чны**, -ая, -ае.

**АТЭІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік атэізму. ‖ *ж.* **атэі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **атэі́сцкі**, -ая, -ае.

**АТЭ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Гасцініца. ‖ *прым.* **атэ́льны**, -ая, -ае.

**АТЭЛЬЕ́**, *нескл., н.* **1.** Майстэрня для пашыву адзення, абутку, рамонту бытавой тэхнікі. *Тэлевізійнае а. А. мод. Пашыць паліто ў а.* **2.** Майстэрня мастака, фатографа, скульптара.

**АТЭРАСКЛЕРО́З**, -у, *м.* Захворванне сардэчна-сасудзістай сістэмы. ‖ *прым.* **атэрасклераты́чны**, -ая, -ае.

**АТЭСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак.* **1.** *каго-што.* Даць, даваць водзыў, характарыстыку, рэкамендацыю каму-н. (кніжн.). *А. агранома як выдатнага работніка.* **2.** *каго-што.* Прысвоіць (прысвойваць) званне каму-н. **3.** *каго-што.* Ацаніць (ацэньваць) чые-н. веды, паставіўшы якую-н. адзнаку. *А. вучняў за чвэрць года.* ‖ *наз.* **атэста́цыя**, -і, *ж.*; *прым.* **атэстацы́йны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.). *Атэстацыйная камісія.*

**АТЭСТА́Т**, -а, *М* -та́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Афіцыйны дакумент аб заканчэнні сярэдняй навучальнай установы, які пацвярджае ўзровень адукацыі. *А. сталасці.* **2.** Афіцыйны дакумент аб прысваенні вучонага звання. *А. прафесара.* **3.** Дакумент на права атрымання ваеннаслужачым грашовага, харчовага і інш. забеспячэння. ‖ *прым.* **атэста́тны**, -ая, -ае.

**АТЭСТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* атэставаць. **2.** Ацэнка, характарыстыка, якая даецца каму-, чаму-н. *А. вучняў за паўгоддзе.* ‖ *прым.* **атэстацы́йны**, -ая, -ае.

**АЎЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паселішча на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі. ‖ *прым.* **аўльны**, -ая, -ае.

**А́ЎГІЕВЫ**. У выразе: **аўгіевы стайні** — пра вельмі запушчанае памяшканне або пра справы, якія знаходзяцца ў крайнім беспарадку.

**АЎДАВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў удаўцом (удавою). *А. чалавек.* ‖ *наз.* **аўдаве́ласць**, -і, *ж.*

**АЎДАВЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Стаць удаўцом або ўдавою.

**АЎДЫЕ́НЦЫЯ**, -і, *ж.* Афіцыйны прыём у высокапастаўленай дзяржаўнай асобы. *Даць аўдыенцыю.*

**АЎДЫТО́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* **1.** Памяшканне для чытання лекцый. **2.** *зб.* Слухачы лекцыі, даклада і пад. *Студэнцкая а.* ‖ *прым.* **аўдыто́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**АЎКЦЫЁН**, -у, *м.* Публічны продаж маёмасці, калі пакупніком становіцца той, хто дасць большую суму. *Прадаць з аўкцыёну.* ‖ *прым.* **аўкцыённы**, -ая, -ае. *А. продаж.*

**А́ЎРА**, -ы, *ж.* (спец.). **1.** Ззянне вакол галавы, цела, якое паказваецца як німб, арэол і ўяўляецца як праява душы, духу. **2.** У парапсіхалогіі: тое, што і *біяполе.*

**АЎРА́Л**, -у, *м.* **1.** Спешная сумесная работа на марскім судне, у якой удзельнічае ўвесь асабовы склад карабля. **2.** *перан.* Вельмі спешная работа ўсяго калектыву, выкліканая кепскай арганізацыяй справы (разм.). ‖ *прым.* **аўра́льны**, -ая, -ае.

**АЎСТРАЛІ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -лі́ец, -лі́йца, *м.* **1.** Назва насельніцтва Аўстраліі. ‖ *ж.* **аўстралі́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -лі́ек. ‖ *прым.* **аўстралі́йскі**, -ая, -ае.

**АЎСТРЫ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -ры́ец, -ры́йца, *м.* Назва насельніцтва Аўстрыі. ‖ *ж.* **аўстры́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -ры́ек. ‖ *прым.* **аўстры́йскі**, -ая, -ае.

**АЎСЮ́К**, -у́, *м.* Аднагадовая расліна сямейства злакавых; пустазелле, падобнае на авёс. ‖ *прым.* **аўсюко́вы**, -ая, -ае.

**АЎСЯ́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Крылатае насякомае, якое жыве ўсяго некалькі дзён; падзёнка. *Рыба добра бярэцца на аўсянікаў.*

**АЎСЯ́НІЦА**, -ы, *ж.* Кармавая расліна з сямейства злакавых. *А. лугавая.* ‖ *прым.* **аўся́нічны**, -ая, -ае.

**АЎСЯ́НІШЧА**, -а, *н.* Поле, на якім рос авёс. *Араць а.*

**АЎСЯ́НКА**[1], -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Аўсяныя крупы або каша з такіх круп. *Наварыць аўсянкі.*

**АЎСЯ́НКА**[2], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Пеўчая птушка з атрада вераб'іных. *Чаротная а.* ‖ *прым.* **аўся́нкавы**, -ая, -ае.

**АЎСЯ́НЫ** *гл.* авёс.

**АЎТ**, а́ўта, *М* а́ўце, *м.* **1.** У спартыўных гульнях: становішча, калі мяч (шайба) аказваецца за межамі гульнявога поля, пляцоўкі. **2.** У боксе: вокрык суддзі, які азначае, што баксёр накаўціраваны.

**АЎТА...**[1] Першая састаўная частка складаных слоў, якая ўжыв. ў знач.: 1) аўтаматычны, напр.: *аўтазборка, аўтарэзка;* 2) самаходны, напр.: *аўтаплуг, аўтадрызіна.*

**АЎТА...**[2] Першая састаўная частка складаных слоў, якая ўжыв. ў знач. аўтамабільны, напр.: *аўтакалона, аўтапрабег, аўтабаза.*

**АЎТА...**[3] Першая састаўная частка складаных слоў, якая ўжыв. ў знач. свой, сама-, напр., *аўтагравюра, аўтапартрэт, аўтабіяграфія.*

**АЎТАБА́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -ба́з, *ж.* Аўтатранспартнае прадпрыемства са стаянкамі для машын і майстэрнямі для рамонту. ‖ *прым.* **аўтаба́заўскі**, -ая, -ае (разм.).

**АЎТАБІЯГРАФІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які змяшчае ў сабе элементы аўтабіяграфіі. *А. раман.* ‖ *наз.* **аўтабіяграфі́чнасць**, -і, *ж.*

**АЎТАБІЯГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* **1.** Апісанне свайго жыцця; літаратурны жанр. **2.** Афіцыйны дакумент, кароткі хранікальна-датавачны выклад пэўнай асобай асноўных падзей уласнага жыцця. ‖ *прым.* **аўтабіяграфі́чны**, -ая, -ае.

**АЎТАБЛАКІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** Аўтаматычная сістэма сігналізацыі для рэгулявання руху цягнікоў. **2.** Аўтама-

тычнае змяненне рэжыму работы тэхнічнага аб'екта (машыны, апарата і інш.). || *прым.* **аўтаблакіро́вачны**, -ая, -ае.

**АЎТАГЕ́ННЫ**, -ая, -ае (спец.). У выразе: **аўтагенная зварка, аўтагеннае рэзанне** — тое, што і газавая зварка, газавае рэзанне.

**АЎТАГУЖАВЫ́**, -а́я, -о́е. Які мае адносіны да аўтамабільных і гужавых перавозак. *А. транспарт.*

**АЎТАДАРО́ЖНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да будаўніцтва і абслугоўвання аўтамабільных дарог. *А. тэхнікум.*

**АЎТАДРЫЗІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -зі́н, *ж.* Дрызіна з рухавіком унутранага згарання. || *прым.* **аўтадрызі́нны**, -ая, -ае.

**АЎТАЗАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтамабільны завод. || *прым.* **аўтазаво́дскі**, -ая, -ае *і* **аўтазавадскі́**, -а́я, -о́е.

**АЎТАКА́Р**, -аў. Самаходны вазок з рухавіком унутранага згарання для перавозкі грузаў, багажу на невялікія адлегласці. || *прым.* **аўтака́рны**, -ая, -ае.

**АЎТАКЛА́Ў**, -ла́ва, *мн.* -ла́вы, -ла́ваў, *м.* Герметычная пасудзіна для награвання чаго-н. пад высокім ціскам, ужыв. для ажыццяўлення розных фізіка-хімічных працэсаў. || *прым.* **аўтакла́ўны**, -ая, -ае.

**АЎТАМАБІЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Аўтамабільная справа; аўтамабільны спорт.

**АЎТАМАБІЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца аўтамабілізмам. || *ж.* **аўтамабілі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **аўтамабілі́сцкі**, -ая, -ае.

**АЎТАМАБІ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Механічны транспартны сродак, які мае не менш за чатыры колы, размешчаныя не менш чым на дзвюх восях, за выключэннем колавых трактараў і самаходных машын. *Легкавы а. Грузавы а.* || *прым.* **аўтамабі́льны**, -ая, -ае. *А. транспарт* (аўтамабілі, аўтобусы і пад.).

**АЎТАМА́Т**, -а, *М* -ма́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Апарат (машына, станок і пад.), які самастойна выконвае шэраг паслядоўных аперацый без непасрэднага ўдзелу чалавека. *Станок-а. Тэлефон-а.* **2.** Від аўтаматычнай стралковай зброі. || *прым.* **аўтама́тны**, -ая, -ае. *Аўтаматная стральба.*

**АЎТАМАТРЫ́СА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́с, *ж.* (спец.). Чыгуначны вагон з уласным рухавіком.

**АЎТАМА́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Рабочы, які абслугоўвае аўтамат (у 1 знач.). **2.** Баец, узброены аўтаматам (у 2 знач.). || *ж.* **аўтама́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц (да 1 знач.).

**АЎТАМАТЫЗАВА́ЦЦА**, -зу́юся, -зу́ешся, -зу́ецца; -зу́йся; *зак.* і *незак.* Стаць (станавіцца) аўтаматычным. || *наз.* **аўтаматыза́цыя**, -і, *ж.*

**АЎТАМАТЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак.*, *што.* **1.** Укараніць (укараняць) аўтаматы (у 1 знач.) у вытворчасць. *А. тэхналагічны працэс.* **2.** Зрабіць (рабіць) аўтаматычным. *А. рухі.* || *наз.* **аўтаматыза́цыя**, -і, *ж.*

**АЎТАМАТЫ́ЗМ**, -у, *ж.* Механічнасць, міжвольнасць дзеянняў або рухаў.

**АЎТАМА́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Галіна навукі і тэхнікі, якая распрацоўвае тэорыю і метады аўтаматызацыі вытворчых працэсаў. **2.** Сукупнасць механізмаў, прыстасаванняў, якія дзейнічаюць аўтаматычна.

**АЎТАМАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца аўтаматам або ажыццяўляецца пры дапамозе аўтамата (у 1 знач.). *А. тормаз. Дзверы зачыняюцца аўтаматычна* (прысл.). **2.** Механічны, міжвольны. *Аўтаматычныя рухі.* || *наз.* **аўтаматы́чнасць**, -і, *ж.*

**АЎТАМАШЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -шы́н, *ж.* Тое, што і *аўтамабіль.*

**АЎТАНО́МІЯ**, -і, *ж.* Самакіраванне, незалежнасць у кіраванні.

**АЎТАНО́МНЫ**, -ая, -ае. Які карыстаецца аўтаноміяй. *Аўтаномная вобласць.* || *наз.* **аўтано́мнасць**, -і, *ж.*

**АЎТАПАГРУ́ЗЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Самаходная машына для пагрузкі, разгрузкі і перавозкі грузаў на невялікія адлегласці.

**АЎТАПАІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Спецыяльная ўстаноўка з аўтаматычнай падачай вады для паення жывёлы. *А. для кароў.*

**АЎТАПАРТРЭ́Т**, -а, *М* -рэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Партрэт, напісаны з самога сябе.

**АЎТАПІЛО́Т**, -а, *М* -ло́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыстасаванне для аўтаматычнага кіравання лятальным апаратам. || *прым.* **аўтапіло́цкі**, -ая, -ае.

**А́ЎТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто стварае мастацкі твор, навуковую працу, музыку, распрацоўвае праекты і пад. *А. рамана. А. сімфоніі. А. праекта.* || *прым.* **а́ўтарскі**, -ая, -ае.

**АЎТА́РКІЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Эканамічная палітыка гаспадарчага адасаблення краіны. || *прым.* **аўтаркты́чны**, -ая, -ае.

**А́ЎТАРСТВА**, -а, *н.* Прыналежнасць твора аўтару. *Устанавіць а.*

**АЎТАРУ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Прылада для пісьма, у якой чарніла з унутранага рэзервуара аўтаматычна падаецца да пяра.

**АЎТАРЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак.*, *што* (кніжн.). Адобрыць (адабраць), ухваліць (ухваляць) форму, від свайго твора, вынаходства (для ўзнаўлення, выдання і пад.). *Аўтарызаваны пераклад.*

**АЎТАРЫТА́РНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** Заснаваны на безагаворачным падпарадкаванні ўладзе, аўтарытэту, дыктатуры. *А. рэжым.* **2.** Які імкнецца ўмацаваць свой аўтарытэт. || *наз.* **аўтарыта́рнасць**, -і, *ж.*

**АЎТАРЫТЭ́Т**, -а *і* -у, *М* -тэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Агульнапрызнанае значэнне, уплыў. *Заваяваць а.* **2.** -а. Асоба, якая карыстаецца павагай, прызнаннем. *Буйны а. у фізіцы.*

**АЎТАРЫТЭ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які карыстаецца аўтарытэтам. *А. вучоны.* **2.** Які заслугоўвае бясспрэчнае давер'е. *Аўтарытэтная думка.* **3.** Які не дапускае пярэчання. *А. тон. А. палітык.* || *наз.* **аўтарытэ́тнасць**, -і, *ж.*

**АЎТАРЭФЕРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кароткі пераказ якога-н. даследавання, напісаны самім аўтарам. *А. дысертацыі.*

**АЎТАСТО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыстасаванне для аўтаматычнага спынення цягніка. **2.** Сістэма арганізаванага выкарыстання турыстамі спадарожнага аўтатранспарту для праезду часткі шляху. || *прым.* **аўтасто́пны**, -ая, -ае.

**АЎТАСТРА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ра́д, *ж.* Дарога для аўтамабільнага руху без папярочных наземных пераездаў. || *прым.* **аўтастра́дны**, -ая, -ае.

**АЎТАСЧЭ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* Прыстасаванне для аўтаматычнай счэпкі вагонаў. || *прым.* **аўтасчэ́пачны**, -ая, -ае.

**АЎТАТРА́КТАРНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да вытворчасці аўтамабіляў і трактароў. *Аўтатрактарная прамысловасць.*

**АЎТАТРА́НСПАРТ**, -у, *М* -рце, *м.* Аўтамабільны транспарт. || *прым.* **аўтатра́нспартны**, -ая, -ае.

**АЎТАХТО́ННЫ**, -ая, -ае (спец.). Тое, што і *абарыгенны* (*гл.* абарыген); карэнны, мясцовы.

**АЎТАХТО́НЫ**, -аў, *адз.* -то́н, -а, *м.* (кніжн.) **1.** Карэнныя, мясцовыя жыхары; абарыгены. **2.** Расліны або жывёлы, якія ўзніклі і працягваюць існаваць у дадзенай мясцовасці.

**АЎТАЦЫСТЭ́РНА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Аўтамабіль-цыстэрна.

**АЎТО́БУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Шматмесны аўтамабіль (з колькасцю месцаў для сядзення больш за дзевяць, уключаючы месца кіроўцы) для перавозкі пасажыраў. *Аўтобусы далёкіх рэйсаў.* || *прым.* **аўто́бусны**, -ая, -ае.

**АЎТО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тэкст твора, напісаны рукой аўтара. *А. паэмы «Курган».* **2.** Уласнаручны, звычайна памятны, надпіс ці подпіс. *Узяць а. у вядомага артыста.* || *прым.* **аўтаграфі́чны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**АЎТО́Л**, -у, *м.* Змазачнае масла для аўтамабільных і трактарных рухавікоў. || *прым.* **аўто́лавы**, -ая, -ае.

**АЎТО́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* Другі дзень тыдня. || *прым.* **аўто́ркавы**, -ая, -ае.

**АЎТСА́ЙДАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спартсмен або спартыўная каманда, што займаюць у спаборніцтве адно з апошніх месц і не маюць шанцаў на перамогу. **2.** *перан.* Той, хто адстае ад іншых у якой-н. справе ці сферы дзейнасці. || *прым.* **аўтса́йдарскі**, -ая, -ае.

**АЎТЭ́НТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн.). Арыгінал чаго-н., не копія.

**АЎТЭНТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які адпавядае арыгіналу, правільны, сапраўдны. *А. тэкст.* ‖ *наз.* **аўтэнты́чнасць**, -і, *ж.*

**АЎЦАБЫ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Млекакормячая жывёліна з прыметамі барана і быка.

**АЎЦАМА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (спец.). Авечка, якая дае прыплод.

**АЎЧА́Р**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Работнік, які даглядае авечак.

**АЎЧА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Парода дужых сабак, якія выкарыстоўваюцца для вартаўнічай і вышуковай службы.

**АЎЧА́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Хлеў для авечак, авечнік. *Калгасная а.*

**АЎЧЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -чы́н, *ж.* Выробленая авечая шкура. *Кажух з аўчын.* ‖ *памянш.* **аўчы́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ◊ **Аўчынка вырабу не варта** — аб справе, якая не апраўдвае клопатаў. ‖ *прым.* **аўчы́нны**, -ая, -ае.

**АФАРБАВА́ЦЦА** *гл.* фарбавацца.

**АФАРБАВА́ЦЬ** *гл.* фарбаваць.

**АФАРБО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** *гл.* фарбаваць. **2.** Колер або спалучэнне колераў. *Прыгожая а. птушкі.* **3.** *перан.* Сэнсавае, выразнае адценне чаго-н. *Стылістычная а. слова.*

**АФАРМІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Работнік па афармленні чаго-н. ‖ *ж.* **афармі́цельніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **афармі́цельскі**, -ая, -ае.

**АФАРМЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* аформіцца, аформіць. **2.** Знешні выгляд, форма чаго-н. *А. вітрын магазіна. Святочнае а. горада.*

**АФАРМЛЯ́ЦЦА** *гл.* аформіцца.

**АФАРМЛЯ́ЦЬ** *гл.* аформіць.

**АФАРЫ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кароткае трапнае выслоўе. ‖ *прым.* **афарысты́чны**, -ая, -ае.

**АФАРЫСТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* афарызм. **2.** Які змяшчае ў сабе афарызм. *А. стыль. Афарыстычная мова.* ‖ *наз.* **афарысты́чнасць**, -і, *ж.*

**АФГА́НЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Асноўнае насельніцтва Афганістана. ‖ *ж.* **афга́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **афга́нскі**, -ая, -ае.

**АФЕ́КТ**, -у, *М* -кце, *м.* Стан моцнага ўзбуджэння і страта самакантролю. ‖ *прым.* **афекты́ўны**, -ая, -ае.

**АФЕКТАВА́НЫ**, -ая, -ае. Прасякнуты афектацыяй; штучна прыўзняты. *А. тон.* ‖ *наз.* **афектава́насць**, -і, *ж.*

**АФЕКТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Ненатуральная, звычайна наўмысная ўзбуджанасць у паводзінах, у маўленні.

**АФЕ́РА** *і* **АФЁРА**, -ы, *ж.* Рызыкоўная, нядобрасумленная справа, дзеянне з мэтай нажывы, выгады.

**АФЕРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца аферамі, прайдзісвет. ‖ *ж.* **аферы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**АФІЦАР'Ё**, -я́, *н.*, *зб.* (разм., пагард.). Афіцэры. *Гітлераўскае а. шукала спажывы.*

**АФІЦЫЁЗ**, -а, *м.* (кніжн.). Афіцыёзны орган друку.

**АФІЦЫЁЗНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які фармальна не звязаны з урадам, але на справе праводзіць яго погляды. *А. орган друку.* ‖ *наз.* **афіцыёзнасць**, -і, *ж.*

**АФІЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Урадавы або службовы. *Афіцыйная асоба. А. дакумент.* **2.** Зроблены па ўстаноўленай форме, з захаваннем усіх правіл і фармальнасцей. *А. тон. Афіцыйнае запрашэнне.* ‖ *наз.* **афіцы́йнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**АФІЦЫЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік рэстарана, кафэ і пад., які падае стравы наведвальнікам. ‖ *ж.* **афіцыя́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **афіцыя́нцкі**, -ая, -ае.

**АФІЦЭ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба каманднага саставу арміі і флоту, а таксама міліцыі і паліцыі (ад малодшага лейтэнанта да палкоўніка ўключна). *Беларускі а. А. сувязі. Старшы а.* ‖ *прым.* **афіцэ́рскі**, -ая, -ае.

**АФІЦЭ́РСТВА**, -а, *н.* **1.** *зб.* Афіцэры. *А. Рэспублікі Беларусь.* **2.** Афіцэрскае званне (разм.).

**АФІ́ША**, -ы, *мн.* -ы, афі́ш, *ж.* Аб'ява аб спектаклі, канцэрце, лекцыі і пад., якая вывешваецца на прыметным месцы. ‖ *прым.* **афі́шны**, -ая, -ае.

**АФІШЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.*, *што* (кніжн.). Выставіць (выстаўляць) напаказ, шырока абвясціць (абвяшчаць).

**АФО́РМІЦЦА**, -млюся, -мішся, -міцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Прыняць закончаную, неабходную форму. *Ідэя яшчэ не афармілася.* **2.** Паступіць, запісацца куды-н. з захаваннем неабходных фармальнасцей. *А. на працу.* ‖ *незак.* **афармля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **афармле́нне**, -я, *н.*

**АФО́РМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак.* **1.** *што.* Прыдаць чаму-н. неабходную або закончаную форму. *А. дагавор.* **2.** *каго-што.* Залічыць куды-н., прыняць з захаваннем неабходных фармальнасцей *А. на працу.* ‖ *незак.* **афармля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **афармле́нне**, -я, *н.*

**АФО́РТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гравюра на медзі або цынку з малюнкам, пратраўленым кіслатой, а таксама адбітак з такой гравюры. *Выстаўка афортаў.* ‖ *прым.* **афо́ртны**, -ая, -ае.

**АФРЫКА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Жыхар, ураджэнец Афрыкі. ‖ *ж.* **афрыка́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **афрыка́нскі**, -ая, -ае.

**АФСЕ́Т**, -у, *М* -се́це, *м.* (спец.). Тое, што і афсетны друк, спосаб друкавання, пры якім фарба перадаецца з друкарскай формы на гумавую паверхню, а з яе на паперу. ‖ *прым.* **афсе́тны**, -ая, -ае. *Друкарскія афсетныя машыны.*

**АФТАЛЬМАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які займаецца хваробамі вачэй, іх лячэннем і прафілактыкай. ‖ *прым.* **афтальмалагі́чны**, -ая, -ае.

**АФТАЛЬМО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач — спецыяліст па афтальмалогіі.

**АХ**, *выкл.* **1.** Перадае захапленне, здзіўленне, спалох, здагадку і пад. *Ах, як слаўна тут! Ах, якая нечаканасць!* **2.** Перадае пачуццё жалю, гора. *Ах, якое няшчасце!* **3.** Перадае пачуццё гневу і абурэння. *Ах, каб вас каршун!*

**АХАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто ахоўвае што-н. *А. маралі.* ‖ *ж.* **ахава́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**АХАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для аховы каго-н. *А. тарыф.*

**АХАВА́ЦЬ** *гл.* ахоўваць.

**АХА́ЙВАЦЬ** *гл.* ахаяць.

**АХА́ЙНЫ**, -ая, -ае. Чысты, акуратны. *А. чалавек.* ‖ *наз.* **аха́йнасць**, -і, *ж.*

**АХАЛАДЖА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Апарат для ахалоджвання чаго-н. **2.** Рэчыва, пры дапамозе якога ахалоджваюць што-н.

**АХАЛАДЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прызначаны для ахаладжэння чаго-н. *Ахаладжальная камера. Ахаладжальная сумесь.* **2.** Які ахалоджвае, асвяжае (пераважна пра напіткі). *А. напітак.*

**АХАЛАДЗЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ахаладзеў, астыў. *Ахаладзелыя рукі.* **2.** *перан.* Які стаў да ўсяго абыякавы, страціў запал, актыўнасць. *А. да пагулянак.*

**АХАЛАДЗЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** Стаць халодным, астыць. *Вар ахаладзеў.* **2.** *перан.* Стаць абыякавым, больш спакойным. *Ахаладзеў запал і рашучасць.*

**АХАЛАДЗІ́ЦЦА**, -ладжу́ся, -ло́дзішся, -ло́дзіцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць халодным, халаднаватым, астыць. *Вада ў моры ахаладзілася.* **2.** Ахаладзіць сябе, сваё цела на паветры. **3.** *перан.* Стаць абыякавым, спакойным, стрыманым у пачуццях. ‖ *незак.* **ахало́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **ахаладжа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **ахаладжэ́нне**, -я, *н. і* **ахало́джванне**, -я, *н.*

**АХАЛАДЗІ́ЦЬ**, -ладжу́, -ло́дзіш, -ло́дзіць; -ло́джаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць халодным ці халаднейшым. *А. вар.* **2.** *перан.*, *каго-што.* Зрабіць больш спакойным, стрыманым, зменшыць сілу якога-н. пачуцця. *А. прамоўцу вострым пытаннем.* ‖ *незак.* **ахало́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ахаладжэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **ахало́джванне**, -я, *н.*

**А́ХАННЕ** *гл.* ахнуць.

**АХА́ПАК**, -пка, *мн.*, -пкі, -пкаў, *м.* Ноша, якую можна панесці, абхапіўшы рукамі. *А. сена. А. дроў. Схапіць у а.*

**АХАПІ́ЦЬ**, ахаплю, ахо́піш, ахо́піць; ахо́плены; *зак.*, *каго-што.* **1.** Тое, што і *абхапіць.* **2.** *перан.* Зайсці з флангаў і акружыць праціўніка. *А. флангі праціўніка.* **3.** Успрыняць цалкам (што-н. вялікае). *А. позіркам рачную даліну.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Авалодаць з нястрымнай сілай (пра пачуцці, стан). *Радасць ахапіла душу.*

5. Уключыць у кола дзеяння, уплыву. *А. насельніцтва падпіскай на газеты.* **6.** Абдаць чым-н., пранізаць. *Мяне ахапіла холадам.* ◊ **Як вокам ахапіць** (разм.) — колькі можна ўбачыць. || *незак.* **ахо́пліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **ахапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **ахо́п**, -у, *м.* || *прым.* **ахо́пны**, -ая, -ае.

**АХАРАКТАРЫЗАВА́ЦЬ** *гл.* характарызаваць.

**АХАРО́ШВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Прыбірацца ў лепшае адзенне, прыводзіць сябе ў парадак. *А. перад люстрам.*

**А́ХАЦЬ** *гл.* ахнуць.

**АХА́ЯЦЬ**, аха́ю, аха́еш, аха́е; аха́й; аха́яны; *зак., каго-што.* Ачысціць ад бруду. || *незак.* **аха́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АХВО́СЦЕ**, -я, *н., зб.* **1.** Адходы пры малацьбе; пазадкі (спец.). **2.** Воўна, якая састрыгаецца з хваста, ног, галавы. **3.** *перан.* Паслугачы, прыхільнікі каго-н. *Фашысцкае а.*

**АХВО́ТА**, -ы, *ДМ*-во́це, *ж., да чаго* або *з інф.* Жаданне, імкненне задаволіць якія-н. свае патрэбы, імкненні, схільнасці, захапленні. *А. вучыцца. Дзе няма ахвоты, там няма работы* (прыказка). *Мне спяваць а.* ◊ **Ахвота бярэ** (разм.) — ёсць жаданне да чаго-н. **Сагнаць ахвоту** (разм.) — задаволіць жаданне, нацешыцца, здаволіцца чым-н.

**АХВО́ТНА**, *прысл.* З вялікім жаданнем. *А. зраблю.*

**АХВО́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто мае жаданне заняцца чым-н., узяцца за якую-н. справу. **2.** *да каго-чаго, на што* або *з інф.* Той, хто схільны да чаго-н., аматар чаго-н. (разм.). *А. пагаварыць.* **3.** *на што.* Той, хто хоча атрымаць, набыць што-н. (разм.). *На кнігу знайшлося многа ахвотнікаў.* || *ж.* **ахво́тніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**АХВО́ТНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які мае ахвоту да чаго-н. (у 1 знач.), схільны да чаго-н. **2.** Падатлівы, згаворлівы, руплівы, старанны. *Да танцаў ён а.*

**АХВО́ЧЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Ласы на што-н. *А. на салодкае.* **2.** Руплівы, старанны.

**АХВЯ́РА**, -ы, *мн.*, -ы, -вя́р, *ж.* **1.** Прадмет або жывая істота, прынесеныя ў дар бажаству паводле абрадаў некаторых рэлігій. **2.** Добраахвотная ўступка, адмаўленне на карысць каго-, чаго-н. *Навука патрабуе ахвяр.* **3.** Пра таго, хто пацярпеў або загінуў ад чаго-н. *А. вайны.* || *прым.* **ахвя́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**АХВЯРАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Той, хто ахвяруе што-н. (у 1 знач.). || *ж.* **ахвярава́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**АХВЯРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак.* **1.** *каго-што.* Прынесці (прыносіць) у дар, бязвыплатна зрабіць (рабіць) уклады куды-н. *А. грошы.* **2.** *кім-чым.* Не пашкадаваць (не шкадаваць) каго-, чаго-н., адмовіцца (адмаўляцца) ад каго-, чаго-н. *А. здароўем. А. ферзя.* || *незак.* таксама **ахвяро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **ахвярава́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**АХВЯРАПРЫНАШЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Абрад прынясення ахвяры бажаству. **2.** Тое, што прыносіцца ў ахвяру.

**АХВЯ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Месца для ахвяры (у 1 знач.) або для спраўлення некаторых іншых абрадаў.

**АХВЯ́РНЫ**, -ая, -ае **1.** Які прыносіцца ў ахвяру. *Ахвярная жывёла.* **2.** На які прыносяць ахвяры. *А. стол.* **3.** *перан.* Адважны, самаадданы. *А. ўчынак.*

**АХІЛЕ́САЎ**, -сава. У выразе: **ахілесава пята** (кніжн.) — найбольш слабае месца каго-, чаго-н.

**АХІНЕ́Я**, -і, *ж.* (разм.). Глупства, бязглуздзіца. *Несці ахінею.*

**АХІНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* **1.** Агарнуць, ахутаць чым-н. *Хусткай а. дзіця.* **2.** *перан.* Акружыць увагай. *Курганы слава ахінула. А. ласкай.* || *незак.* **ахіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**А́ХКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Выяўляць пачуцці (здзіўлення, шкадавання, прыкрасці і пад.), усклікаючы «ах!». || *наз.* **а́хканне**, -я, *н.*

**АХМІСТРЫ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -ры́нь, *ж.* (уст.). Жанчына, якая вяла хатнюю гаспадарку ў панскім доме; аканомка.

**АХМЯЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца ў стане ахмялення. **2.** *перан.* Пра чалавека, які да самазабыцця захоплены, узрушаны чым-н. *А. ад радасці.*

**АХМЯЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). **1.** Стаць п'яным, ап'янець. *А. ад гарэлкі.* **2.** *перан.* Захапіцца да самазабыцця, узрушыцца. *А. ад шчасця.*

**А́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** Аднакратна моцна выкрыкнуць «ах!», выказваючы якое-н. пачуццё: захапленне, здзіўленне, шкадаванне, страх, смутак і пад. *Жанчына ахнула.* **2.** Моцна ўдарыць па чым-н.; выбухнуць, разарвацца, стрэліць, абрушыцца і г.д. *А. палкай па галаве.* || *незак.* **а́хаць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **а́ханне**, -я, *н.*

**АХО́ВА**, -ы, *ж.* **1.** *гл.* ахоўваць. **2.** Група (людзей, караблёў і пад.), якая ахоўвае каго-, што-н. *Берагавая а. Выставіць ахову. А. працы.*

**АХО́П** *гл.* ахапіць.

**АХО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* ахапіць.

**АХО́ПНЫ** *гл.* ахапіць.

**АХО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што.* **1.** Абараняць ад чыйго-н. нападу, вартаваць, сцерагчы. *Чыгунку ахоўвала ўзмоцненая варта.* **2.** Берагчы, шанаваць. *А. прыроду.* **3.** Засцерагаць ад чаго-н. шкоднага. *А. ад сонца.* || *зак.* **ахава́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **ахо́ва**, -ы, *ж.*

**АХО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Асоба, што ахоўвае, сцеражэ каго-, што-н.; вартаўнік. **2.** Той, хто беражэ, шануе каго-, што-н. *А. сям'і.* || *ж.* **ахо́ўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**АХО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які нясе ахову або ахоўваецца. *Ахоўная зона. Ахоўная служба.* **2.** Які засцерагае, ахоўвае ад чаго-н. шкоднага. *Ахоўнае лесанасаджэнне. Ахоўныя акуляры.*

**АХРА́П'Е**, -я, *н., зб.* Бацвінне, капуснік, рознае агароднае зелле як корм для жывёлы. *Назбіраць ахрап'я.*

**АХРЫ́ПЛЫ**, -ая, -ае (разм.). З хрыпатою. *А. голас.* || *наз.* **ахры́пласць**, -і, *ж.*

**АХРЫПНУЦЬ** *гл.* хрыпнуць.

**АХРЫСЦІ́ЦЦА** *гл.* хрысціцца.

**АХРЫСЦІ́ЦЬ**, ахрышчу́, ахры́сціш, ахры́сціць; ахры́шчаны; *зак., каго-што.* **1.** *гл.* хрысціць. **2.** *кім-чым.* Тое, што і *абазваць* (разм., жарт.). *За доўгі нос яго ахрысцілі насачом.*

**АХУ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Абгарнуць чым-н., захутаць. *А. ногі коўдрай.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Агарнуць, пакрыць чым-н. *Туман ахутаў лес.* || *незак.* **аху́тваць**, -аю, -аеш, -ае. || *звар.* **аху́тацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **аху́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АЦАЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які аказаўся цэлы сярод разбуранага; які захаваўся, уцалелы.

**АЦАЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Тое, што і *ўцалець.*

**АЦАНІ́ЦЬ**, ацаню́, ацэ́ніш, ацэ́ніць; ацэ́нены; *зак.* **1.** *каго-што.* Вызначыць цану каго-, чаго-н. *А. каня. А. хату.* **2.** *што.* Устанавіць узровень, ступень падрыхтаванасці. *А. веды школьнікаў.* **3.** *перан., каго-што.* Выказаць думку, меркаванне аб значэнні або каштоўнасці каго-, чаго-н. *Правільна а. учынак палявода.* || *незак.* **ацэ́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **ацэ́нка**, -і, *ДМ*-нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.; прым.* **ацэ́начны**, -ая, -ае (паводле 1 знач.). *Ацэначная камісія.*

**АЦВЕРАЗЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў цвярозым, працверазіўся. || *наз.* **ацвераз́еласць**, -і, *ж.*

**АЦВЕРАЗЕ́ЦЬ** *гл.* цверазець.

**АЦВЕРАЗІ́ЦЦА**, ацвяражу́ся, ацвярэ́зішся, ацвярэ́зіцца; *зак.* Стаць цвярозым пасля ап'янення. || *незак.* **ацвяража́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. || *наз.* **ацвяражэ́нне**, -я, *н.*

**АЦВЕРАЗІ́ЦЬ**, ацвяражу́, ацвярэ́зіш, ацвярэ́зіць; ацвяро́жаны; *зак., каго-што.* Прывесці ў цвярозы стан, зрабіць цвярозым. *А. п'янага. А. летуценніка.* || *незак.* **ацвяража́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **ацвяражэ́нне**, -я, *н.*

**АЦВЯРДЗЕ́ЛАСЦЬ**, -і, *ж.* Ацвярдзелае месца.

**АЦВЯРДЗЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў цвёрдым. *Ацвярдзелая смала.*

**АЦВЯРДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* ацвярдзець. **2.** Тое, што і *ацвярдзеласць.*

**АЦВЯРДЗЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -е́е; *зак.* Стаць цвёрдым. *Глеба ацвярдзела.* || *незак.* **ацвердзява́ць**, -а́е. || *наз.* **ацвярдзе́нне**, -я, *н.*

**АЦЕ́ПЛІВАННЕ** *гл.* ацяпліць.

**АЦЕ́ПЛІВАЦЬ** *гл.* ацяпліць.

**АЦЕРАБІ́ЦЦА**, ацераблюся, ацярэбішся, ацярэбіцца; *зак.* **1.** Атрэсціся, ачысціцца ад чаго-н., што насела на адзенне. *А. ад саломы.* **2.** Пазбавіцца чаго-н.; адчапіцца ад каго-, чаго-н. (разм.). *Ад людскіх языкоў не ацярэбішся.* ‖ *незак.* **ацярэ́бліваацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АЦЕРАБІ́ЦЬ**, ацераблю, ацярэбіш, ацярэбіць; ацярэблены; *зак., што.* Тое, што і *абцерабіць.* ‖ *незак.* **ацярэ́бліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АЦЕРУШЫ́ЦЬ**, ацерушу́, ацяру́шыш, ацяру́шыць; ацяру́шаны; *зак.* **1.** *кагошто.* Абтрэсці, абабіць (ад снегу, пылу і пад.) з чаго-н. *А. снег з каўняра.* **2.** *што.* Памяўшы, аддзяліць (пра зерне, колас). *А. колас.* ‖ *незак.* **ацяру́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **ацерушы́цца**, ацерушу́ся, ацяру́шышся, ацяру́шыцца (да 1 знач.); *незак.* **ацяру́шваацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АЦЕ́СЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Пра вязкі, недапечаны, з закальцам хлеб. *А. хлеб.* 2. *перан.* Нясвежы, памяты; неачэсаны. *А. хлопец.* ‖ *наз.* **аце́слівасць**, -і, *ж.*

**АЦЁК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Пухліна, якая ўзнікае ад лішку вадкасці ў тканках. *А. лёгкіх. А. ног.* ‖ *прым.* **ацёчны**, -ая, -ае. ‖ *наз.* **ацёчнасць**, -і, *ж.*

**АЦЁЛ**, -у, *м.* Роды ў каровы і некаторых іншых жвачных. ‖ *прым.* **ацёлачны**, -ая, -ае.

**АЦІРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *разм.* Церціся аб што-н. *Сабака аціраўся ля ног.* **2.** Быць, знаходзіцца дзе-н., каля каго-н. без пэўнага занятку; хадзіць, швэндацца, нічога не рабіць (разм., пагард.). *А. каля начальства.*

**АЦІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* У выразах: **аціраць халадкі** (разм.) — ухіляцца ад работы, гультаяваць; **аціраць бакі** (разм.) — бадзяцца, швэндацца.

**АЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* Тое, што і *абціснуць.* ‖ *незак.* **аціска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АЦІ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; ацí́х, -хла; -ні; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Стаць цішэйшым (пра гукі, шум і пад.). *Пад вечар вуліца аціхла.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Спыніцца, аслабець у дзеянні (пра стыхійную з'яву). *Завея к ночы аціхла.* **3.** Супакоіцца, прыціхнуць. *Гаспадар аціх.* ‖ *незак.* **аціха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АЦІШЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* Тое, што і *аціхнуць.*

**АЦЫДАФІЛІ́Н**, -у, *м.* Малако, сквашанае пры дапамозе асобых бактэрый. ‖ *прым.* **ацыдафілі́навы**, -ая, -ае.

**АЦЫНКАВА́ЦЬ** *гл.* цынкаваць.

**АЦЫНКО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *цынкаваць.*

**АЦЭ́НАЧНЫ** *гл.* ацаніць.

**АЦЭ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* ацаніць. **2.** Думка, меркаванне пра якасць, значэнне каго-, чаго-н. *Даць ацэнку.* **3.** Адзнака, абазначэнне ступені ведаў і паводзін вучняў. *А. па літаратуры.*

**АЦЭ́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто ўстанаўлівае, вызначае цану, робіць ацэнку чаго-н. ‖ *ж.* **ацэ́ншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**АЦЭ́НЬВАЦЬ** *гл.* ацаніць.

**АЦЭТО́Н**, -у, *м.* Арганічнае злучэнне, бясколерная гаручая вадкасць, якая выкарыстоўваецца пераважна як растваральнік. ‖ *прым.* **ацэто́навы**, -ая, -ае.

**АЦЭТЫЛЕ́Н**, -у, *м.* Бясколерны гаручы газ, злучэнне вугляроду з вадародам. ‖ *прым.* **ацэтыле́навы**, -ая, -ае.

**АЦЯЖА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго-што.* Тое, што і *абцяжарыць.* ‖ *незак.* **ацяжа́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ацяжа́рванне**, -я, *н.* *і* **ацяжа́ранне**, -я, *н.*

**АЦЯЖЭ́ЦЬ** *гл.* цяжэць.

**АЦЯЛІ́ЦЦА** *гл.* цяліцца.

**АЦЯПЛІ́ЦЬ**, ацяплю, аце́пліш, аце́пліць; аце́плены; *зак., што.* Абагрэць (памяшканне) пры дапамозе печаў або спецыяльных прыстасаванняў; зрабіць цёплым. *А. дом.* ‖ *незак.* **ацяпля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **аце́пліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ацяпле́нне**, -я, *н.* *і* **аце́пліванне**, -я, *н.*

**АЦЯПЛЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які служыць для ацяплення, уцяплення, абагрэву. *А. матэрыял.* **2.** Які мае адносіны да ацяплення. *А. сезон. Ацяпляльная сістэма.*

**АЦЯРО́БКІ**, -аў. Тое, што і *пацяробкі.*

**АЦЯРУ́ШВАЦЦА** *гл.* ацерушыць.

**АЦЯРУ́ШВАЦЬ** *гл.* ацерушыць.

**АЦЯРЭ́БЛІВАЦЦА** *гл.* ацерабіцца.

**АЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ** *гл.* ацерабіцца, ацерабіць.

**АЦЯЧЫ́**, аця́ку́, аця́чэ́ш, аця́чэ́; аця́чо́м, ацечаце́, аця́ку́ць; ацёк, ацякла́, -ло́; аця́чы́; *зак.* **1.** Апухнуць ад лішку вадкасці ў тканках. *Ацяклі ногі.* **2.** Азызнуць ад тлушчу. *Твар яго ацёк.* ‖ *незак.* **ацяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**АЧА́Г**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Прыстасаванне, дзе распальваюць і падтрымліваюць агонь. *Гарыць агонь у ачагу.* **2.** *перан.* Месца, адкуль што-н. распаўсюджваецца, цэнтр чаго-н. (кніжн.). *А. асветы. А. землетрасення. А. хваробы.* **3.** *перан.* Родны дом, сям'я. *Хатні а.* ‖ *прым.* **ачаго́вы**, -ая, -ае.

**АЧАЛАВЕ́ЧЫЦЦА**, -чыцца; *зак.* (кніжн.). **1.** Стаць падобным на чалавека, ператварыцца ў чалавека. **2.** *перан.* Стаць гуманным. ‖ *незак.* **ачалаве́чвацца** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), -аецца. ‖ *наз.* **ачалаве́чанне**, -я, *н.* *і* (працэс) **ачалаве́чванне**, -я, *н.* *А. малпы.*

**АЧАМЯРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які стаў горкі як чэмер; абрыдлы, які апрацівеў.

**АЧАМЯРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *зак.* (разм.). Стаць горкім, як чэмер; надакучыць, абрыдзець. *Ачамярэла мне гэта балаганная музыка.*

**АЧАПІ́ЦЬ**, ачаплю́, ачэ́піш, ачэ́піць; ачэ́плены; *зак., каго-што.* Акружыць з мэтай аховы або спынення доступу куды-н. *А. плошчу.* ‖ *незак.* **ачапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **ачапле́нне**, -я, *н.*

**АЧАРНІ́ЦЬ** *гл.* чарніць.

**АЧАРСЦВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Чэрствы, падсохлы. *А. хлеб.* **2.** *перан.* Грубы, бяздушны. *Ачарсцвелая душа.* ‖ *наз.* **ачарсцве́ласць**, -і, *ж.*

**АЧАРСЦВЕ́ЦЬ** *гл.* чарсцвець.

**АЧАСА́ЦЬ**[1], ачашу́, ачэ́шаш, ачэ́ша; ачашы́; ачаса́ны *і* ачэ́саны; *зак., што.* Ачысціць часаннем. *А. лён.* ‖ *незак.* **ачэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АЧАСА́ЦЬ**[2], ачашу́, ачэ́шаш, ачэ́ша; ачашы́; ачаса́ны *і* ачэ́саны; *зак., што.* Чэшучы сякерай, падраўняць. *А. бервяно.* ‖ *незак.* **ачэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АЧА́ХЛЫ**, -ая, -ае. Які астыў, негарачы. *А. прысак.*

**АЧА́ХНУЦЬ** *гл.* чахнуць[3].

**АЧКО́**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *н.* **1.** Значок на ігральнай карце або косці, які абазначае яе вартасць і значэнне ў гульні. **2.** Адзінка падліку выйгрышаў у спаборніцтвах, у спартыўных гульнях. *Набраць большую колькасць ачкоў.* **3.** Від азартнай карцёжнай гульні. *Гуляць у а.* ‖ *прым.* **ачко́вы**, -ая, -ае.

**АЧМУРЫ́ЦЬ** *гл.* чмурыць.

**АЧМУРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які знаходзіцца ў стане ачмурэння, страціў здольнасць ясна ўспрымаць і разумець навакольнае. *Ачмурэлая галава.* ‖ *наз.* **ачмурэ́ласць**, -і, *ж.*

**АЧМУРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* (разм.). Страціць здольнасць ясна ўспрымаць і разумець навакольнае. *Ачмурэў ты ці што?* ‖ *наз.* **ачмурэ́нне**, -я, *н.*

**АЧМУЦІ́ЦЬ** *гл.* чмуціць.

**АЧНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Прачнуцца. *Я ачнуўся рана.* **2.** Апрытомнець, апамятацца. *А. ад непрытомнасці.* **3.** Выйсці са стану глыбокай задуменнасці, забыцця; схамянуцца. *А. ад успамінаў.* ‖ *незак.* **ачына́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АЧО́СКІ**, -аў (спец.). Рэшткі, адходы пры часанні. *А. лёну.* ‖ *прым.* **ачо́скавы**, -ая, -ае.

**АЧУЖЭ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які аддаліўся, стаў чужым, страціў сувязі з блізкімі, роднымі.

**АЧУЖЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* (разм.). Стаць чужым, страціць сувязі з блізкімі, роднымі. *Штосьці ён зусім ачужэў.*

**АЧУМЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які страціў розум, адурэлы. *Ён бег, як а.*

**АЧУМЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Страціць розум, разважлівасць, адурэць.

**АЧУНЯ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які ачуняў, паправіўся, ажыў.

**АЧУНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак.* **1.** Папраўіцца пасля хваробы; ажыць. *Хлопец ачуняў пасля цяжкай хваробы.* **2.** Апрытомнець. *А. ад страху.* ‖ *незак.* **ачу́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АЧУ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Тое, што і *ачнуцца* (у 2 знач.). ‖ *незак.* **ачу́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АЧУ́ЦЦА**, ачу́юся, ачу́ешся, ачу́ецца; ачу́йся; *зак.* **1.** Ачнуцца, прыйсці да памяці. **2.** Стаць здаровым. **3.** Праявіцца, адчуць. *Сэрца маці заўсёды ачуецца.* ‖ *незак.* **ачува́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**АЧЫСТКА** *гл.* ачысціць, чысціць.

**АЧЫСТКІ**, -аў. Рэшткі, лупіны, адкіды пры ачыстцы чаго-н. *Бульбяныя а.*

**АЧЫСЦІЦЦА**, ачы́шчуся, ачы́сцішся, ачы́сціцца; *зак.* **1.** Вызваліцца ад чаго-н., што забруджвае, закрывае што-н.; пазбавіцца чаго-н. *Неба ачысцілася ад хмар.* **2.** Стаць чыстым па саставе, пазбавіцца ад чужародных прымесей бруду; стаць свежым. *Вада ачысцілася.* **3.** *перан.* Стаць чыстым у маральных адносінах, пазбавіцца ад чаго-н. заганнага. *А. ад грахоў* (перан.) ‖ *незак.* **ачышча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **ачышчэ́нне**, -я, *н.*

**АЧЫСЦІЦЬ**, ачы́шчу, ачы́сціш, ачы́сціць; ачы́шчаны; *зак.* **1.** *гл.* чысціць. **2.** *што.* Зрабіць чыстым па саставе. *А. спірт.* **3.** *што.* Аслабаніць ад каго-, чаго-н. *А. залу. А. горад ад прышэльцаў.* **4.** Апаражніць, з'еўшы ўсё (разм.). *А. міску кашы.* **5.** *каго-што.* Абакрасці (разм.). *Зладзеі ачысцілі кватэру.* **6.** Зрабіць чыстым у маральных адносінах. *А. сумленне* (перан.). ‖ *незак.* **ачышча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **ачы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж. і* **ачышчэ́нне**, -я, *н. Для ачысткі сумлення* (каб супакоіцца; разм.); *прым.* **ачышча́льны**, -ая, -ае. *Ачышчальныя прыстасаванні.*

**АЧЭ́СВАЦЬ**[1] *гл.* ачасаць[1].

**АЧЭ́СВАЦЬ**[2] *гл.* ачасаць[2].

**АШАЛАМІ́ЦЦА**, -ламлю́ся, -ло́мішся, -ло́міцца; *зак.* Разгубіцца, здзівіцца. ‖ *незак.* **ашаламля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**АШАЛАМІ́ЦЬ**, -ламлю́, -ло́міш, -ло́міць; -ло́млены; *зак., каго-што.* **1.** Задурыць галаву. *Несціханы лямант ашаламіў галаву.* **2.** Надта здзівіць, азадачыць, зрабіць моцнае ўражанне. *Нечаканая тэлеграма ашаламіла яго.* ‖ *незак.* **ашаламля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**АШАЛАМЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* Стан збянтэжанасці, разгубленасці або ўзрушэння. *На яго найшло нейкае а.*

**АШАЛАМЛЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які можа зрабіць моцнае ўражанне, ашаламіць. *Ашаламляльныя весці.* ‖ *наз.* **ашаламля́льнасць**, -і, *ж.*

**АШАЛЕ́ЦЬ** *гл.* шалець.

**АШАЛЁВАЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). Звязаны з ашалёўкай, прызначаны для ашалёўкі. *А. матэрыял. Ашалёвачныя работы.*

**АШАЛЬМАВА́ЦЬ** *гл.* шальмаваць.

**АШАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *зак., што.* Абшыць дошкамі. *А. хату.* ‖ *незак.* **ашалёўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ашалёўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **ашалёўванне**, -я, *н.*

**АШАТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Абадраць, ачысціць зерне перад памолам. *А. мяшок ячменю.*

**АШКЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; -лёны; *зак., што.* Зашкліць, уставіць шкло. *А. вокны.*

**АШКЛЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў падобны на шкло, застылы. *Ашклянелыя вочы.*

**АШКЛЯНЕ́ЦЬ** *гл.* шклянець.

**АШМО́РГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Тое, што і *абшморгаць.* ‖ *незак.* **ашмо́ргваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **ашмаргну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́.

**АШМО́ЦЦЕ**, -я, *н., зб.* (разм.). Старое адзенне, паношаны абутак; абры́ўкі, шматкі вопраткі і пад. *На падлозе валялася а. старых шынялёў.*

**АШТРАФАВА́ЦЬ** *гл.* штрафаваць.

**АШУ́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Народны паэт-пясняр у народаў Каўказа.

**АШУ́КА**, -і, *ДМ* -ашу́цы, *ж.* Падман, хлусня, ашуканства.

**АШУКА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Той, хто ашуквае, махляр. *Дробны а.* ‖ *ж.* **ашука́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **ашука́нскі**, -ая, -ае.

**АШУКА́НСТВА**, -а, *н.* Падман, жульніцтва, махлярства, несумленны ўчынак з карыслівай мэтай. *А. ў гульні.*

**АШУКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Памыліцца, пралічыцца. *А. ў падліках.* **2.** Расчаравацца ў кім-, чым-н., завесці сябе ў зман. *А. ў сваім выбары.* ‖ *незак.* **ашу́квацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**АШУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Наўмысна ўвесці ў зман каго-н., абысціся несумленна з кім-н., не выканаць абяцання. *На цэлых сямнаццаць тысяч ашукала прадаўшчыца.* ‖ *незак.* **ашу́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АШЧА́ДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* (разм.). Грошы або іншыя матэрыяльныя каштоўнасці як прадмет або вынік ашчады. *Гаспадыня заўсёды мела а.*

**АШЧАДЖА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* Эканомна, з асцярогаю выдаткоўвацца. *Тут кожная капейка ашчаджаецца.* ‖ *наз.* **ашча́да**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.*

**АШЧАДЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што.* **1.** Эканомна, па-гаспадарску выдаткоўваць; берагчы. *А. грошы.* **2.** *перан., што.* Ахоўваць. *А. сон.* ‖ *наз.* **ашча́да**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.*

**АШЧА́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Які ашчадна адносіцца да маёмасці; эканомны, беражлівы. *А. гаспадар.* ‖ *наз.* **ашча́длівасць**, -і, *ж.*

**АШЧА́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да захоўвання грашовых укладаў. *А. банк. Ашчадная кніжка.* **2.** Тое, што і *ашчадлівы. А. чалавек.* ‖ *наз.* **ашча́днасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**АШЧАНІ́ЦЦА** *гл.* шчаніцца.

**АШЧАПЕ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго-што* (разм.). Моцна абхапіць, абняць. *Дзіця ашчаперыла маці за шыю.*

**АШЧАПІ́ЦЬ**, ашчаплю́, ашчэ́піш, ашчэ́піць; *зак., каго-што* (разм.). Тое, што і *абняць.*

**АШЧАРЭ́ПІЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -плены; *зак., каго-што* (разм.). Тое, што і *ашчаперыць.*

**АШЧАСЛІ́ВІЦЬ**, -лі́ўлю, -лі́віш, -лі́віць; -лі́ўлены; *зак., каго-што.* Зрабіць шчаслівым. *А. дачку. А. добрай навіной.* ‖ *незак.* **ашчаслі́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**АШЧАЦІ́НІЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ніцца; *зак.* **1.** Наставіць шчаціnне, хіб ад злосці, страху, рыхтуючыся да абароны або нападзення. *Сабака ашчацініўся на незнаёмага.* **2.** Стаць старчма нібы шчаціnне (пра валасы, вусы і пад.). **3.** Выставіць якія-н. вострыя прадметы (штыкі, пікі, калы і пад.). **4.** *перан.* Зазлавацца у адказ на якія-н. словы, учынкі (разм.). *А. на каго-н.* ‖ *незак.* **ашчаці́ньвацца**, -аецца.

**АШЧАЦІ́НІЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніць; -нены; *зак., што.* Паставіць дыбам шчаціnне, хіб; выставіць якія-н. вострыя прадметы. ‖ *незак.* **ашчаці́ньваць**, -ае.

**АШЧЫПА́ЦЬ** *гл.* шчыпаць.

**АШЧЫ́ПВАННЕ** *гл.* шчыпаць.

**АШЧЭ́Р**, -у, *м.* Выскал; рот з вышчаранымі зубамі. *Драпежны а.*

**АШЧЭ́РЫЦЦА** *гл.* шчэрыцца.

**АШЧЭ́РЫЦЬ** *гл.* шчэрыць.

**АШЫ́ЕК**, ашы́йка, *мн.* ашы́йкі, ашы́йкаў, *м.* (спец.). Частка мясной тушы, што прылягае да шыі.

**АШЫ́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Раменьчык са спражкай, які надзяваюць на шыю сабаку і інш. жывёлам; аброжак.

**АШЫКАЦЬ** *гл.* шыкаць.

**АШЭ́РХЛЫ**, -ая, -ае. Падсохлы, падмёрзлы, зацвярдзелы. *Ашэрхлая зямля.*

**АЭРА...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае адносіны да авіяцыі, паветраплавання, напр.: *аэраклуб, аэрамаяк.*

**АЭРАВАКЗА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вакзал аэрапорта. ‖ *прым.* **аэравакза́льны**, -ая, -ае.

**АЭРАДРО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пляцоўка з рознымі збудаваннямі для стаянкі, узлёту, пасадкі і абслугоўвання самалётаў, верталётаў, планераў. ‖ *прым.* **аэрадро́мны**, -ая, -ае.

**АЭРАДЫНА́МІКА**, -і, *ДМ* -міцы, *ж.* Раздзел аэрамеханікі, які вывучае супраціўленне паветра і газаў пры руху розных цел. ‖ *прым.* **аэрадынамі́чны**, -ая, -ае.

**АЭРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая вывучае ўласцівасці высокіх пластоў атмасферы. ‖ *прым.* **аэралагі́чны**, -ая, -ае.

**АЭРАМЕХА́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* Раздзел механікі, які вывучае газападобныя асяроддзі і іх уздзеянні на апушчаныя ў іх целы. ‖ *прым.* **аэрамехані́чны**, -ая, -ае.

**АЭРАНАВІГА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Навука аб метадах і сродках ваджэння лятальных апаратаў па намечаным шляху; паветра-

ная навігацыя. ‖ *прым.* **аэранавігацы́йны**, -ая, -ае.

**АЭРАНА́ЎТ**, -а, *М* -ўце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паветраплавальнік.

**АЭРАНА́ЎТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Тэорыя і практыка паветраплавання.

**АЭРАПЛА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Лятальны апарат, цяжэйшы за паветра; самалёт. ‖ *прым.* **аэрапла́навы**, -ая, -ае *і* **аэрапла́нны**, -ая, -ае.

**АЭРАПО́РТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйная станцыя паветранага транспарту з вялікім аэрадромам; паветраны порт. ‖ *прым.* **аэрапо́ртны**, -ая, -ае *і* **аэрапо́ртаўскі**, -ая, -ае (разм.).

**АЭРА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Пляцоўка для прыняцця паветраных ваннаў.

**АЭРАСА́НІ**, -е́й, *мн.* Механічныя сані, якія перамяшчаюцца па снезе пры дапамозе паветранага вінта.

**АЭРАСТА́Т**, -а, *М* -та́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лятальны апарат, лягчэйшы за паветра, з корпусам, які напоўнены газам. ‖ *прым.* **аэраста́тны**, -ая, -ае.

**АЭРАСТА́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Навука аб законах раўнавагі паветра і газаў, якія прымяняюцца ў лятальных апаратах, лягчэйшых за паветра, дзеянні нерухомых газаў на змешчаныя ў іх целы. ‖ *прым.* **аэрастаты́чны**, -ая, -ае.

**АЭРАФОТАЗДЫ́МКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* Фатаграфаванне мясцовасці з лятальных апаратаў. ‖ *прым.* **аэрафотазды́мачны**, -ая, -ае.

**АЭРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Вентыляцыя, паветраабмен. *А. гарачых цэхаў.* **2.** Насычэнне вады, глебы паветрам. *А. глебы.*

**АЭРО́БІКА**, -і, *ДМ* -біцы, *ж.* Аздараўленчая рытмічная гімнастыка, якая выконваецца пад музыку без паўз і ў хуткім тэмпе. *Займацца аэробікай.*

**АЭРО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па аэралогіі.

**АЯГНІ́ЦЦА** *гл.* ягніцца.

# Б

**Б**, *часц.* Тое, што і *бы*[1] (ужыв. пасля слоў, якія заканчваюцца на галосны). *Была б песня, а спевакі знойдуцца.*

**БААБА́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гіганцкае трапічнае лісцевае дрэва з вельмі тоўстым ствалом. ‖ *прым.* **баабабавы**, -ая, -ае.

**БА́БА**[1], -ы, *мн.* -ы, баб, *ж.* **1.** Матчына або бацькава маці. **2.** Старая жанчына наогул. **3.** Замужняя жанчына (разм.). **4.** звычайна *мн.* Жанчыны наогул (разм.). *Бабы пайшлі жаць.* **5.** Жонка (разм.). *Мая б. прыбралася, як на вяселле.* **6.** Жанчына, якая прымае роды (разм., уст.). *За бабу была Праксэда з Бадзінава.* **7.** *перан.* Пра слабахарактарнага, нясмелага мужчыну (разм., іран.). *«Смялей, не будзь бабай!», — крычалі яму.* ○ **Каменная баба** — старажытная статуя з каменя. **Снегавая баба** — злепленая са снегу чалавечая фігура. ◊ **Баба Яга** — у казках славянскіх народаў: злая вядзьмарка, чараўніца. **Базарная баба** — сварлівы, грубы, крыклівы чалавек. **Бой-баба** (разм.) — мажная жанчына з шумлівым характарам. **Хват-баба** (разм.) — увішная, працавітая жанчына. ‖ *зб.* **баб'ё**, -я́, *н.* (да 2—4 знач.; пагард.). ‖ *прым.* **ба́бін**, -а. ◊ **Бабіна лета** — ясныя цёплыя дні ранняй восені.

**БА́БА**[2], -ы, *мн.* -ы, баб, *ж.* (спец.). Ударная частка механічнага молата для забівання паляў і для іншых мэт. *Чыгунная б.*

**БА́БА**[3], -ы, *мн.* -ы, баб, *ж.* У выразе: **ромавая баба** — кекс цыліндрычнай або канічнай формы, насычаны ромам, віном.

**БАБА́Х**, *выкл.* **1.** Ужыв. для перадачы моцнага грукату (выбуху, стрэлу, падзення чаго-н. цяжкага). **2.** *у знач. вык.* Ужыв. ў знач. дзеясловаў бабахнуць, бабахаць (разм.).

**БАБА́ХНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* (разм.). Зваліцца адкуль-н. з шумам. *Б. з печы.*

**БАБА́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** Учыніць выбух, выстраліць, загрымець. *Бабахнуў карабін. Бабахнуў гром.* **2.** *каго (што)* і *без дап.* Гучна ўдарыць, стукнуць. *Бабахнулі дзверы.* ‖ *незак.* **баба́хаць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **баба́ханне**, -я, *н.*

**БА́БА-ЯГА́**, ба́бы-ягі́, *ж.* Пра злую старую жанчыну.

**БАБЁР**, -бра́, *мн.* -бры́, -бро́ў, *м.* **1.** Жывёліна атрада грызуноў, якая звычайна жыве ў лесе каля рэк і вадаёмаў. **2.** Футра гэтага звера, а таксама адзенне з такога футра. *Хадзіць у баврах.* ‖ *прым.* **бабро́вы**, -ая, -ае. *Бабровая хатка. Б. запаведнік. Бабровая шапка.*

**БАБІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, бабі́н, *ж.* (спец.). У розных відах вытворчасці: род шпулі, валіка для намотвання чаго-н.

**БАБІ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Пярэдняя частка царквы перад паперцю.

**БАБІ́Т**, -у, *М* -біце, *м.* (спец.). Спецыяльны сплаў на аснове волава ці свінцу для заліўкі падшыпнікаў. ‖ *прым.* **бабі́тавы**, -ая, -ае.

**БА́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; *незак., каго* і *без дап.* (разм., уст.). Прымаць роды. *Параска некалі бабіла.*

**БА́БКА**[1], -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, ба́бак, *ж.* Тое, што і *баба*[1] (у 1—3 і 6 знач.).

**БА́БКА**[2], -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, ба́бак, *ж.* Надкапытны сустаў нагі ў жывёлы, а таксама косць гэтага сустава.

**БА́БКА**[3], -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, ба́бак, *ж.* Сталёвае кавадлачка для кляпання кос.

**БА́БКА**[4], -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, ба́бак, *ж.* Страва, прыгатаваная з дранай бульбы.

**БА́БКА**[5], -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, ба́бак, *ж.* Тое, што і *абабак.*

**БА́БКА**[6], -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, ба́бак, *ж.* Дзесяць снапоў, састаўленых разам для прасушкі і накрытых распасцёртым снапом.

**БА́БНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм., неадабр.). Той, хто вельмі захапляецца жанчынамі; спакуснік.

**БАБО́ВІШЧА**, -а, *н.* Месца, дзе рос боб.

**БАБО́ВЫ** *гл.* боб[1].

**БАБО́К**, -бку́, *м.* Тое, што і *бабоўнік* (у 1 знач.). ‖ *прым.* **бабко́вы**, -ая, -ае.

**БАБО́ЎНІК**, -у, *м.* **1.** Балотная травяністая расліна з сакавітым лісцем, якая ідзе на корм жывёле. **2.** *зб.* Сцёблы бобу. ‖ *прым.* **бабо́ўнікавы**, -ая, -ае.

**БАБРАНЯ́** *і* **БАБРАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня бабра.

**БАБРО́ВЫ** *гл.* бабёр.

**БАБРЫ́ХА**, -і, *ДМ* -ры́се, *мн.* -і, -ры́х, *ж.* Самка бабра.

**БА́БСКІ**, -ая, -ае (разм.). Уласцівы жанчыне; жаночы. *Бабскія размовы.*

**БАБСЛЕІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца бабслеем. ‖ *ж.* **бабслеі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **бабслеі́сцкі**, -ая, -ае.

**БАБСЛЕ́Й**, -я, *м.* Від спорту: хуткасны спуск з гор па ледзяной трасе на бобе[2].

**БАБУ́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, -бу́ль, *ж. Ласк.* да баба[1] (у 1 і 2 знач.). ‖ *памянш.-ласк.* **бабу́лька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.;* *прым.* **бабу́льчын**, -а. *Б. чапец.*

**БАБЫ́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* (разм.). Бессямейны адзінокі чалавек. *Векаваць бабылём.* ‖ *ж.* **бабы́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак *і* **бабы́лька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек. ‖ *прым.* **бабы́льскі**, -ая, -ае. *Бабыльскае жыццё.*

**БАВАЎНА...** (*гл.* **бавоўна...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «бавоўна...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *бавαўнаводства, бавαўнаводчы, бавαўназдача, бавαўнасейны.*

**БАВАЎНАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне бавαўнаводства.

**БАВАЎНАВО́ДСТВА**, -а, *н.* Галіна сельскай гаспадаркі, якая займаецца вырошчваннем бавоўны. ‖ *прым.* **баваўнаво́дчы**, -ая, -ае. *Б. раён.*

**БАВАЎНЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Тканіна з баваўнянай пражы.

**БА́ВІЦЦА**, ба́ўлюся, ба́вішся, ба́віцца; *незак.* (разм.). **1.** Затрымлівацца дзе-н. *Б. ў суседкі.* **2.** Праводзіць дзе-н. час, гуляць, забаўляцца. *Б. на рэчцы.*

**БА́ВІЦЬ**, ба́ўлю, ба́віш, ба́віць; *незак.* (разм.). **1.** *што.* Бескарысна праводзіць час. *Б. вечары за картамі.* **2.** *каго-што.* Весяліць, забаўляць. *Б. дзіця.* ‖ *наз.* **ба́венне**, -я, *н.*

**БАВО́ЎНА**, -ы, *ж.* **1.** Тое, што і *баво́ўнік. Белыя воблакі бавоўны.* **2.** Ватападобнае валакно, якое ідзе на выраб пражы, цэлюлозы і пад. ‖ *прым.* **баваўня́ны**, -ая, -ае *і* **баво́ўнавы**, -ая, -ае. *Баваўняныя тканіны. Бавоўнавы алей.*

**БАВОЎНА...** (а таксама **баваўна...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. бавоўна, напр.: *бавоўнанарыхтоўка, бавоўнаперавозка, бавоўнасаджалка.*

**БАВОЎНААЧЫШЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да ачысткі бавоўны. *Б. агрэгат.*

**БАВОЎНАКАМБА́ЙН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Камбайн для ўборкі бавоўны.

**БАВОЎНАПРАДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* Выраб пражы з бавоўны. ‖ *прым.* **бавоўнапрадзі́льны**, -ая, -ае.

**БАВОЎНАЎБО́РАЧНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да ўборкі бавоўны. *Бавоўнаўборачная пара.*

**БАВО́ЎНІК**, -у, *м.* Паўднёвая расліна сямейства мальвавых, насенне якой пакрыта валакном, што ідзе на выраб баваўнянай пражы. ‖ *прым.* **баво́ўнікавы**, -ая, -ае. *Бавоўнікавае насенне.*

**БАВО́ЎНІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *н.* Поле, на якім рос бавоўнік.

**БАГАДЗЕ́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* **1.** Да рэвалюцыі: прытулак для бяздомных, старых, інвалідаў. **2.** *перан.* Пра арганізацыю ці ўстанову, дзе людзі бяздзейнічаюць, дрэнна працуюць (разм., іран.). *Развялі багадзельню.*

**БАГА́Ж**, -у́, *м.* **1.** Запакаваныя для перавозкі рэчы пасажыраў, а таксама спосаб адпраўкі гэтых рэчаў. *Б. авіяпасажыра. Адправіць рэчы багажом. Ручны б.* **2.** *перан.* Запас ведаў, эрудыцыя. *Творчы б. Б. ведаў.* ‖ *прым.* **бага́жны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**БАГА́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прыстасаванне ў веласіпедзе, матацыкле, аўтамабілі для перавозкі невялікай паклажы. *Адчыніць б.*

**БАГАМО́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які многа моліцца, ажыццяўляе багамолле. **2.** Драпежнае насякомае атрада тараканападобных з прыстасаванымі для хапання пярэднімі канечнасцямі. ‖ *ж.* **багамо́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак (да 1 знач.).

**БАГАМО́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* Тое, што і *багамол* (у 1 знач.). ‖ *ж.* **багамо́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **багамо́льны**, -ая, -ае.

**БАГАМО́ЛЛЕ**, -я, *н.* Паломніцтва набожных людзей у святыя мясціны. *Адправіцца на багамолле.*

**БАГАРА́**, -ы́, *ж., зб.* Землі ў зонах арашальнага земляробства, дзе культуры апрацоўваюць без палі́ву, а таксама пасевы на іх. ‖ *прым.* **бага́рны**, -ая, -ае. *Багарнае земляробства.*

**БАГАРО́ДЗІЦА**, -ы, *ж.* (з вялікай літары). У хрысціянскай рэлігіі: Маці Божая, маці Хрыста. *Прасвятая Багародзіца.*

**БАГАСЛО́Ў**, -ло́ва, *мн.* -ло́вы, -ло́ваў, *м.* **1.** Спецыяліст у галіне багаслоўя. **2.** Навучэнец старэйшых класаў духоўнай семінарыі (уст.). ‖ *прым.* **багасло́ўскі**, -ая, -ае.

**БАГАСЛО́ЎЕ**, -я, *н.* Царкоўнае вучэнне пра Бога і догматы рэлігіі. ‖ *прым.* **багасло́ўскі**, -ая, -ае. *Багаслоўскія кнігі.*

**БАГА́ТЫ**, -ая, -ае; багаце́йшы. **1.** Які валодае вялікай маёмасцю, грашовымі сродкамі, заможны. *Б. чалавек. Б.* (наз.) *беднага не разумее.* **2.** Які вызначаецца вялікай колькасцю чаго-н., мноствам даброт. *Б. ўлоў. Б. край.* **3.** Які дорага каштуе, вызначаецца раскошай. *Б. касцюм.* **4.** *перан.* Які змяшчае ў сабе многа ўнутраных якасцей. *Багатая натура.*

**БАГАТЫ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Той, хто мае многа грошай, валодае вялікай маёмасцю.

**БАГАЦЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Тое, што і *багатыр. Прагны б.* ‖ *ж.* **багаце́йка**, -і, *мн.* -і, -цеек.

**БАГАЦЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Станавіцца багатым. *Багацее наш край.* ‖ *зак.* **разбагаце́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**БАГА́ЦЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Матэрыяльныя каштоўнасці, грошы. **2.** Сукупнасць прыродных рэсурсаў. *Прыродныя багацці.* **3.** Раскоша, шыкоўнасць. *Б. ўбрання.* **4.** Разнастайныя ўнутраныя якасці каго-н. *Духоўныя багацці людзей.*

**БАГА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Чалавек, які валодае вялікім багаццем. **2.** (з вялікай літары). Народнае свята ўраджаю, якое адзначаюць восенню. *Б. з агарода прагнаў, ды ў гумно загнаў* (прыказка). ‖ *ж.* **бага́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (да 1 знач.).

**БАГЕ́МА**, -ы, *ж., зб.* Прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі (мастакі, артысты, музыканты і пад.), а таксама іх бестурботны, легкадумны лад жыцця. ‖ *прым.* **бага́мны**, -ая, -ае.

**БАГЕ́Т**, -у, *М* -ге́це, *м.* Разьбяная або пафарбаваная планка, з якой робяць рамы, карнізы. *Рамы з багету.* ‖ *прым.* **бага́тавы**, -ая, -ае *і* **бага́тны**, -ая, -ае. *Багетавая рама. Багетная вытворчасць.*

**БАГІ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -гі́нь, *ж.* **1.** У антычнай міфалогіі і некаторых рэлігіях: бажаство жаночага полу. *Б. Ісіда.* **2.** *перан.* Пра жанчыну незвычайнай прыгажосці і грацыі. *Не жанчына, а б.*

**БА́ГНА**, -ы, *ж.* **1.** Топкае балота, дрыгва. *Праваліцца ў багну.* **2.** *перан.* Усё, што засмоктвае і цягне чалавека да адсталасці і коснасці. *Б. мяшчанства.* ‖ *прым.* **ба́гнавы**, -ая, -ае.

**БАГНІ́СТЫ**, -ая, -ае. Балоцісты, з багнай, дрыгвой. *Багністае месца.* ‖ *наз.* **багні́стасць**, -і, *ж.*

**БАГУ́Н**, -у́, *м.* Вечназялёная балотная расліна сямейства верасовых з рэзкім дурманным пахам. *Цвіце б.* ‖ *прым.* **багуно́вы**, -ая, -ае. *Б. пах.*

**БАДА́Й** (разм.). **1.** *часц.* Ужыв. для выказвання нядобрых пажаданняў, праклёнаў. *А б. ты прапаў!* **2.** *пабочн. сл.* Выказвае дапушчэнне якой-н. магчымасці, схільнасць згадзіцца з чым-н. *Па багацці ўбораў няма б. прыгажэйшай пары года, як восень.* **3.** *прысл.* Амаль. *Тут некалі корчмы стаялі б. праз кожныя дзесяць кіламетраў.* ◊ **Бадай ці не...** — падобна на тое, што. **Бадай што** — 1) магчыма што, відаць што. *Бадай што я з вамі згодзен;* 2) амаль, амаль што. *Мы ўжо праехалі бадай што паўдарогі.*

**БАДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Мець звычку бадаць, быць бадлівым. *Асцярожна, гэта карова бадаецца.* **2.** Бадаць каго-н. або адзін аднаго. *На лузе бадаліся бычкі.*

**БАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што.* Біць ілбом, калоць рагамі (пра жывёл). ‖ *зак.* **забада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *аднакр.* **бадану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **бадну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́.

**БАДЗЁРЫ**, -ая, -ае. Поўны сіл, здароўя, энергіі. *Б. хлопец.* ‖ *наз.* **бадзёрасць**, -і, *ж.*

**БАДЗЁРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *незак.* Імкнуцца захаваць бадзёрасць.

**БАДЗЁРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак., каго-што і без дап.* Надаваць бадзёрасці. *Б. байцоў перад атакай. Надвор'е бадзёрыла.*

**БАДЗЯ́ГА**[1], -і, *ДМ* -дзя́зе, *ж.* Прэснаводная губка, якая ў высушаным стане выкарыстоўваецца ў медыцыне для лячэння рэўматызму. *Націрацца бадзягай.*

**БАДЗЯ́ГА**[2], -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -дзя́зе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -дзя́г. Бяздомны без пэўнага занятку чалавек. *Хадзіць бадзягай па свеце.* ‖ *прым.* **бадзя́жніцкі**, -ая, -ае *і* **бадзя́жны**, -ая, -ае. *Бадзяжніцкае жыццё. Б. люд.*

**БАДЗЯ́ЖНІЦТВА**, -а, *н.* Лад жыцця бадзягі[2].

**БАДЗЯ́К**, -у́, *м.* Шматгадовая травяністая расліна сямейства складанакветных з калючкамі на лісці і пурпуровымі кветкамі. ‖ *прым.* **бадзяко́вы**, -ая, -ае.

**БАДЗЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* **1.** Весці бадзяжніцкае, без пэўнага занятку і прыстанішча жыццё. *Б. па свеце.* **2.** Марна траціць час, сланяючыся без справы. *Б. па вуліцы.* ‖ *наз.* **бадзя́нне**, -я, *н.*

**БАДЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які мае звычку бадацца. *Бадлівае цяля. Бадлівай карове Бог рог не дае* (прыказка). ‖ *наз.* **бадлі́васць**, -і, *ж.*

**БАДМІНТАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ігрок у бадмінтон. ‖ *ж.* **бадмінтані́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **бадмінтані́сцкі**, -ая, -ае.

**БАДМІНТО́Н**, -а, *м.* Спартыўная гульня, у якой з дапамогай ракетак перакідваецца валан цераз сетку ад аднаго іграка да другога. ‖ *прым.* **бадмінто́нны**, -ая, -ае.

**БАДЫ́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Тое, што і *бадыль.*

**БАДЫ́ЛЛЕ**, -я, *н., зб.* Пруткія сцябліны пераважна аднагадовых траў.

**БАДЫ́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Звычайна сухое сцябло аднагадовай расліны. *Кукурузныя бадылі.*

**БАЕ́Ц**, байца́, *мн.* байцы́, байцо́ў, *м.* **1.** Удзельнік баёў; воін. *Бясстрашны б.* **2.** Радавы ваеннаслужачы, салдат. *Б. нацыянальнай арміі.* ‖ *прым.* **байцо́ўскі**, -ая, -ае.

**БА́ЕЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто расказвае байкі. *Слухаць баечніка.* ‖ *ж.* **ба́ечніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**БАЁ́К**, байка́, *мн.* байкі́, байко́ў, *м.* Дэталь механізма, машыны, зброі, якая перадае ўдарнае ўздзеянне.

**БАЖАСТВО́**, -а́, *мн.* бо́жаствы, -аў, *н.* Стваральнік свету паводле рэлігійных уяўленняў; Бог.

**БАЖНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** Паліца з абразамі. **2.** Памяшканне для маленняў.

**БАЖО́К**, -жка́, *мн.* -жкі́, -жко́ў, *м.* Статуэтка, якая ўвасабляе бажаства.

**БАЖЫ́ЦЦА**, бажу́ся, бо́жышся, бо́жыцца; *незак.* Клясціся імем Бога. *Не бажыцеся, вам і так вераць.* ‖ *зак.* **пабажы́цца**, -бажу́ся, -бо́жышся, -бо́жыцца. ‖ *наз.* **бажэ́нне**, -я, *н.*

**БА́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, баз, *ж.* **1.** Ніжняя апорная частка збудавання, калоны (спец.). *Б. калоны.* **2.** Аснова, тое, на чым грунтуецца што-н. *Тэарэтычная б.* **3.** Апорны пункт узброеных сіл краіны на пэўнай тэрыторыі. *Ваенна-марская б.* **4.** Установа, прадпрыемства і пад. па забеспячэнні або абслугоўванні каго-, чаго-н. *Турысцкая б.* **5.** Склад, месца для захоўвання тавараў, матэрыялаў. *Прадуктовая б.* ‖ *прым.* **ба́завы**, -ая, -ае (да 2, 4 і 5 знач.).

**БАЗАВА́ЦЦА**, -зу́юся, -зу́ешся, -зу́ецца; -зу́йся *і* **БАЗІ́РАВАЦЦА**, -руюся, -руешся, -руецца; -руйся; *незак.* **1.** *на чым.* Асноўвацца на чым-н., грунтавацца. *Б. на фактах.* **2.** Размяшчацца дзе-н., мець пэўную базу. *Б. ў лясах.*

**БАЗАВА́ЦЬ** -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й *і* **БАЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., што на чым.* Засноўваць на чым-н. *Б. рост вытворчасці на зніжэнні сабекошту прадукцыі.*

**БАЗА́ЛЬТ**, -у, *М* -льце, *м.* Вулканічная горная парода, звычайна чорнага колеру. ‖ *прым.* **База́льтавы**, -ая, -ае. *Базальтавая лава.*

**БАЗА́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Месца для гандлю, а таксама гандаль прадуктамі і іншымі таварамі шырокага ўжытку на такім месцы. *Кніжны б. Апусцеў б. Адкрыць б.* (перан.: распачаць крык, шум; разм.). ◊ **Птушыны базар** — месца на марскім узбярэжжы, дзе гняздзяцца птушкі. ‖ *прым.* **база́рны**, -ая, -ае. *Б. дзень.*

**БАЗІЛІ́КА**, -і, *ДМ* -ліцы, *мн.* -і, -лі́к, *ж.* Тып антычных і сярэдневяковых прамавугольных будынкаў (звычайна храмаў), якія ўнутры падзяляюцца ўздоўж двума радамі калон. ‖ *прым.* **базілі́кавы**, -ая, -ае.

**БА́ЗІС**, -у, *м.* **1.** Тое, што і *база* (у 1 і 2 знач.). **2.** Сукупнасць пэўных вытворчых адносін, якія вызначаюць эканамічную структуру грамадства і характар надбудовы. ‖ *прым.* **ба́зісны**, -ая, -ае.

**БАЙ**[1], ба́я, *мн.* ба́і, ба́яў, *м.* (гіст.). У Сярэдняй Азіі: буйны землеўладальнік або ўласнік жывёлы. ‖ *прым.* **ба́йскі**, -ая, -ае. *Байскія землі.*

**БАЙ**[2], Ба́я *і* ба́ю, *мн.* ба́і, ба́яў, *м.* (разм.). **1.** (з вялікай літары) Ба́я. Міфічная істота дзіцячага фальклору, якая расказвае байкі, казкі. *Ішоў Б. па сцяне.* **2.** ба́ю. Гаворка. *Вось бачыце, не слухалі майго баю.*

**БАЙ-БА́Й**, *выкл.* **1.** Прыпеў пры закалыхванні дзіцяці. **2.** Спаць (у дзіцячай мове). *Пайсці б.*

**БАЙБА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Стэпавая жывёліна атрада грызуноў, якая восень і зіму праводзіць у спячцы. **2.** *перан.* Пра непаваротлівага, гультаяватага чалавека (разм.). ‖ *прым.* **байбако́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **байба́цкі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**БАЙДА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Адна- або двухмесная лёгкая спартыўная лодка з закрытым верхам. *Паход на байдарках.* ‖ *прым.* **байда́рачны**, -ая, -ае.

**БА́ЙКА**[1], -і, *ДМ* ба́йцы, *мн.* -і, ба́ек, *ж.* **1.** Кароткі літаратурны твор алегарычнага зместу з павучальнай канцоўкай. *Байкі Кандрата Крапівы.* **2.** *перан.*, часцей *мн.* Пустыя размовы, выдумкі (разм.). *Ці варта слухаць розныя байкі.* ‖ *прым.* **ба́ечны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Баечная мараль.*

**БА́ЙКА**[2], -і, *ДМ* ба́йцы, *ж.* Мяккая баваўняная тканіна з прыгладжаным ворсам. ‖ *прым.* **ба́йкавы**, -ая, -ае. *Байкавая коўдра.*

**БАЙКАПІ́СЕЦ**, -пі́сца, *мн.* -пі́сцы, -пі́сцаў, *м.* Аўтар баек[1] (у 1 знач.). *Выдатны б.*

**БАЙКАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Падвяргаць байкоту. *Б. выбары. Б. рашэнні.*

**БАЙКО́Т**, -у, *М* -ко́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спосаб уздзеяння на асобу, арганізацыю, дзяржаву і пад., калі цалкам або часткова спыняюцца адносіны з імі. *Аб'явіць б. бракаробам.*

**БАЙНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Адтуліна ў сцяне абарончых збудаванняў для вядзення агню. ‖ *прым.* **байні́чны**, -ая, -ае.

**БАЙСТРУ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм., груб.). Пазашлюбнае дзіця.

**БАК**[1], ба́ка, *мн.* ба́кі, ба́каў, *м.* Закрытая пасудзіна для вадкасцей. *Б. бензіну.* ‖ *памянш.* **бачо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* ‖ *прым.* **ба́кавы**, -ая, -ае.

**БАК**[2], ба́ка, *м.* Насавая частка верхняй палубы судна. ‖ *прым.* **ба́кавы**, -ая, -ае.

**БАКАВА́Я**, -ой. У выразе: **на бакавую** (разм.) — легчы (лажыцца) спаць. *Пад'еўды на бакавую.*

**БАКАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* **1.** Бакавая частка чаго-н. *Б. армяка выгарала. Б. судака.* **2.** Тое, што і *бакавіца. Б. кузава.*

**БАКАВІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -віц, *ж.* Бакавая сценка вагона, кузава, шафы і пад.

**БАКАВЫ́** *гл.* бок.

**БАКА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пасудзіна для віна ў выглядзе вялікай чаркі. *Звіняць бакалы на вяселлі.* ‖ *прым.* **бака́льны**, -ая, -ае.

**БАКАЛА́ЎР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У некаторых краінах: вучоная ступень, а таксама асоба, што мае гэту ступень. **2.** У Францыі: чалавек, які здаў экзамен за курс сярэдняй школы. ‖ *прым.* **бакала́ўрскі**, -ая, -ае.

**БАКАЛЕ́Я**, -і, *ж., зб.* Некаторыя харчовыя тавары (мука, крупы, цукар, прыправы і пад.). ‖ *прым.* **бакале́йны**, -ая, -ае. *Б. магазін.*

**БАКАРА́**, *нескл., н.* Адзін з лепшых гатункаў хрустальных вырабаў. *Набыць б.*

**БАКА́С**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Балотная птушка сямейства бакасіных, якая ў палёце ваганнем пер'я ўтварае гукі, падобныя на бляянне баранчыка. ‖ *прым.* **бакасі́ны**, -ая, -ае *і* **бакасо́вы**, -ая, -ае.

**БА́КЕН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Плывучы знак на якары, які ўстанаўліваецца на водных шляхах для папярэджання аб небяспечных для суднаў месцах. *Агні бакенаў.* ‖ *прым.* **ба́кенны**, -ая, ае.

**БАКЕНБА́РДЫ**, -аў, *адз.* -а, -ы, *ж.* Частка барады ад скроняў па шчоках пры выгаленым падбародку. *Адпусціць б. Насіць б.* ‖ *прым.* **бакенба́рдны**, -ая, -ае.

**БА́КЕНШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вартаўнік пры бакенах. *Працаваць бакеншчыкам.* ‖ *прым.* **ба́кеншчыцкі**, -ая, -ае.

**БА́КІ**, -аў, *адз.* ба́ка, -і, *ж.* Тое, што і *бакенбарды.*

**БАКЛА́ГА**, -і, *ДМ* -ла́зе, *мн.* -і, -ла́г, *ж.* Тое, што і *біклага.* ‖ *прым.* **бакла́жны**, -ая, -ае.

**БАКЛАЖА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паўднёвая аднагадовая агародная расліна сямейства паслёнавых, а таксама плод гэтай расліны сіняга або фіялетавага колеру. ‖ *прым.* **баклажа́навы**, -ая, -ае. *Баклажанавая ікра.*

**БАКО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ко́ўцы, *мн.* -і, -ко́вак, *ж.* Бакавы пакойчык у хаце; бакавая прыбудова пры чым-н. *Спаць у бакоўцы.* ‖ *прым.* **бако́вачны**, -ая, -ае. *Баковачнае акно.*

**БАКСЁР**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца боксам. *Б. цяжкай вагі.* ‖ *прым.* **баксёрскі**, -ая, -ае.

**БАКСЁР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Парода службовых сабак з шырокімі мордай і грудзьмі, кароткай поўсцю. ‖ *прым.* **баксёрскі**, -ая, -ае.

**БАКСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; *незак.* Займацца боксам; весці бой па правілах бокса.

**БАКСІ́Т**, -у, *М* -сіце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Алюмініевая руда. ‖ *прым.* **баксі́тавы**, -ая, -ае.

**БАКТЭРЫЁЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне бактэрыялогіі.

**БАКТЭ́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Мікраскапічны арганізм, від мікроба. ‖ *прым.* **бактэрыя́льны**, -ая, -ае. *Бактэрыяльная інфекцыя.*

**БАКТЭРЫЯЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука пра бактэрыі. *Дасягненні ў галіне бактэрыялогіі.* ‖ *прым.* **бактэрыялагі́чны**, -ая, -ае. *Бактэрыялагічная вайна* (з прымяненнем хваробатворных бактэрый як сродку масавага паражэння).

**БАЛ**, ба́ла, *мн.* ба́лы, -аў, *м.* **1.** Адзінка вымярэння сілы або ступені якой-н. прыроднай з'явы. *Вецер у пяць балаў.* **2.** Лічбавая ацэнка поспехаў у навучальнай установе, дасягненняў у спорце. *Набраць дваццаць балаў.* ‖ *прым.* **ба́льны**, -ая, -ае *і* **ба́лавы**, -ая, -ае. *Сістэма балавай (бальнай) ацэнкі.*

**БАЛАБО́ЛКА**, -і, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). **1.** Бразготка, якую чапляюць жывёле на шыю, каб не гублялася. **2.** *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -лцы, *Т* -ай (-аю), *ж.* Чалавек, які хутка і многа гаворыць; пустаслоў.

**БАЛАБО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). **1.** Кругленькі званочак у выглядзе шарыка. **2.** *перан.* Балбатун, пустаслоў. ‖ *ж.* **балабо́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак (да 2 знач.).

**БАЛАБО́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.* (разм.). **1.** Звінець, гучаць. **2.** *перан.* Балбатаць, шпарка, несупынна гаварыць. *Б. увесь дзень.*

**БА́ЛАВАЦЬ**, -лую, -луеш, -луе; -луй; -лаваны; *незак., каго (што).* Занадта песціць, патураць жаданням. *Б. гасцінцамі. Маці яго балуе.* ‖ *зак.* **зба́лаваць**, -лую, -луеш, -луе; -луй; -лаваны.

**БАЛАГА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Часовае лёгкае збудаванне з дошак для тэатральных, цыркавых паказаў, для гандлёвых патрэб, жылля і пад. (уст.). **2.** Старадаўні народны вандроўны тэатр; тэатральнае відовішча камічнага характару з прымітыўным сцэнічным афармленнем. **3.** *перан.* Пра што-н. несур'ёзнае, шумнае, бязладнае (разм.). ‖ *прым.* **балага́нны**, -ая, -ае.

**БАЛАГА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.* (разм.). Крыўляцца, гарэзаваць.

**БАЛАГО́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Той, хто займаецца перавозам грузаў ці людзей на ўласнай фурманцы. ‖ *прым.* **балаго́льскі**, -ая, -ае. *Б. занятак.*

**БАЛА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, бала́д, *ж.* **1.** Невялікі вершаваны твор асобай формы пераважна на легендарную ці гістарычную тэму. **2.** Музычны твор эпічнага характару для голасу або інструмента. ‖ *прым.* **бала́дны**, -ая, -ае.

**БАЛАЗЕ́**, *злуч. далучальны* (разм.). Далучае сказы з дадатковымі паведамленнямі, па знач. адпавядае словазлучэнням «тым больш што», «добра што». *Вучыся, б. ёсць умовы.*

**БАЛА́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ла́цы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -ла́к (разм.). Вясёлы гаварун, жартаўнік. *Гэта быў адменны весялун і б.*

**БАЛАЛА́ЕЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на балалайцы, або майстар, што робіць балалайкі.

**БАЛАЛА́ЙКА**, -і, *ДМ* -ла́йцы, *мн.* -і, -ла́ек, *ж.* Народны трохструнны музычны інструмент з корпусам трохвугольнай формы. ‖ *прым.* **балала́ечны**, -ая, -ае. *Б. аркестр.*

**БАЛАМУ́Т**, -а, *М* -му́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). **1.** Чалавек, які ўносіць неспакой, беспарадак у адносіны, работу і пад. *Паводзіны баламута.* **2.** Спакуснік, інтрыган. *Звязалася з гэтым баламутам.* ‖ *ж.* **баламу́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **баламу́тны**, -ая, -ае.

**БАЛАМУ́ЦІЦЬ**, -му́чу, -му́ціш, -му́ціць; *незак., каго-што* (разм.). **1.** Выклікаць неспакой сярод каго-н., уносіць разлад, неразбярыху. *Б. народ.* **2.** Спакушаць, зачароўваць. *Ах, дзяўчаты, хопіць вам б. хлопца!* ◊ **Баламуціць светам** (разм., неадабр.) — выклікаць непакой, нездавальненне. ‖ *зак.* **узбаламу́ціць**, -му́чу, -му́ціш, -му́ціць; -му́чаны *і* **забаламу́ціць**, -му́чу, -му́ціш, -му́ціць; -му́чаны (да 1 знач.).

**БАЛА́НДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* (разм.). Посная рэдкая поліўка. *Палонных кармілі баландай.*

**БАЛА́НС**[1], -у, *м.* **1.** Раўнавага, ураўнаважванне. *Пачуццё балансу.* **2.** Падрахунак расходу і прыходу, вынікі фінансавай дзейнасці прадпрыемства, арганізацыі, а таксама ведамасць з такім падрахункам. *Квартальны б.* **3.** Суадносіны ўзаемна звязаных паказчыкаў якой-н. дзейнасці, працэсу. *Б. народнай гаспадаркі.* ‖ *прым.* **бала́нсавы**, -ая, -ае (у 2 і 3 знач.).

**БАЛА́НС**[2], -а *і* -у, *м.* (спец.). **1.** -у, *зб.* Ачышчаныя ад кары бярвёны аднолькавай даўжыні, якія ідуць на выраб цэлюлозы. *Адвезці б. на ваганетцы ў цэх.* **2.** -а. На чыгунцы — перакідная прылада для перацягвання рэек. *Перакінуць б.* ‖ *прым.* **бала́нсавы**, -ая, -ае (у 1 знач.). *Балансавая драўніна.*

**БАЛАНСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; *незак.* **1.** Захоўваць пры няўстойлівым становішчы раўнавагу пры дапамозе рухаў цела. *Б. на канаце.* **2.** Падводзіць баланс[1] (у 2 знач.; спец.). **3.** *што.* Прыводзіць у адпаведныя суадносіны ўзаемазвязаныя часткі чаго-н. (спец.). **4.** *што.* Ураўнаважваць рухомыя дэталі машын, механізмаў (спец.). ‖ *зак.* **збалансава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны. ‖ *наз.* **балансава́нне**, -я, *н.*

**БАЛАНСЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Цыркавы артыст, які балансуе на канаце. ‖ *ж.* **балансёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **балансёрскі**, -ая, -ае.

**БАЛАНСІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Доўгі шост, пры дапамозе якога балансёр захоўвае раўнавагу на канаце. **2.** Дэталь у машыне, механізме, якая перадае рух ад адной часткі да другой. ‖ *прым.* **балансі́рны**, -ая, -ае.

**БАЛА́СТ**, -у, *М* -сце, *м.* **1.** Спецыяльны груз, які забяспечвае ўстойлівасць і асадку карабля, а таксама груз для рэгулявання вышыні палёту аэрастата. **2.** *перан.* Што-н. лішняе, непатрэбнае, што не прыносіць ніякай карысці. **3.** Шчэбень або пясок, якім засыпаюць чыгуначнае палатно і на які ўкладваюць шпалы (спец.). *Сухі б. Платформы з баластам.* ‖ *прым.* **бала́сны**, -ая, -ае.

**БАЛАЎНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Свавольнік, дураслівец. ‖ *ж.* **балаўні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц.

**БАЛАЎНЫ́**, -а́я, -о́е (разм.). **1.** Свавольны, дураслівы. **2.** Распешчаны, сапсаваны залішнім патураннем, увагай.

**БАЛАХО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Халат шырокага крою, які раней насілі сяляне, а таксама наогул шырокая бясформенная вопратка. *Ішоў незнаёмы ў доўгім балахоне.* ‖ *прым.* **балахо́нны**, -ая, -ае.

**БАЛАЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* Нізкае, балоцістае месца.

**БАЛАЦІ́РАВАЦЦА**, -руюся, -руешся, -руецца; -руйся *і* **БАЛАТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *зак.* і *незак.* Вылучыць (вылучаць) сваю кандыдатуру на выбарах. *Б. ў дэпутаты.*

**БАЛАЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны *і* **БАЛАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Выбраць (выбіраць) каго-н. галасаваннем шляхам падачы бюлетэняў або ставіць што-н. на галасаванне. *Б. прапанову.* ‖ *наз.* **балаці́раванне**, -я, *н.* *і* **балатава́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **балаціро́вачны**, -ая, -ае. *Б. бюлетэнь.*

**БАЛАЦЯВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* Нізкае забалочанае месца. *Лясная б.*

**БАЛБАТА́ЦЬ**, -бачу́, -бо́чаш, -бо́ча; -бачы́; *незак.* (разм.). **1.** *што* і *без дап.* Гаварыць несупынна, невыразна, а таксама займацца пустымі размовамі. *Б. лягчэй, чым рабіць.* **2.** *перан.* Булькаць — пра ваду, што бяжыць або кіпіць. ‖ *аднакр.* **балбатну́ць**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -няце, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **балбата́нне**, -я, *н.*

**БАЛБАТЛІ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Празмерна гаваркі, а таксама які не ўмее захоўваць тайну. *Б. паляўнічы.* ‖ *наз.* **балбатлі́васць**, -і, *ж. Б. — старасці сястра* (прыказка).

**БАЛБАТУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Чалавек, які занадта многа гаворыць, пустаслоў. *Абяцанні балбатуна.* ‖ *ж.* **балбату́ха**, -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х.

**БАЛВА́Н**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Фігура чалавека, вылепленая або высечаная з якога-н. матэрыялу. *Снегавы б.* **2.** Дурань, невук (разм., зневаж.).

**БАЛВА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Загатоўка для далейшай апрацоўкі. ‖ *прым.* **балва́начны**, -ая, -ае.

**БАЛГА́РЫ**, -аў, *адз.* -га́рын, -а, *м.* Паўднёваславянскі народ, які складае асноў-

нае насельніцтва Балгарыі. ‖ *ж.* **балга́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **балга́рскі**, -ая, -ае.

**БАЛДАХІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Упрыгожаны навес на слупках над ложкам, тронам, катафалкам і пад. ‖ *прым.* **балдахі́нны**, -ая, -ае.

**БАЛЕ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Аматар спорту, а таксама чалавек, які клапоціцца аб чым-н., перажывае за каго-, што-н. *Заўзяты б. футбола.* ‖ *ж.* **бале́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **бале́льшчыцкі**, -ая, -ае.

**БАЛЕРО́**, *нескл., н.* **1.** Іспанскі нацыянальны танец, а таксама музычны твор у рытме гэтага танца. **2.** Кароткая безрукаўка — частка нацыянальнага іспанскага ўбрання.

**БАЛЕРЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́н, *ж.* Артыстка балета; танцоўшчыца.

**БАЛЕ́Т**, -а, *М* -ле́це, *м.* **1.** Від сцэнічнага мастацтва, змест якога раскрываецца ў танцавальна-музычных вобразах. *Класічны б.* **2.** Тэатральнае прадстаўленне на пэўны сюжэт, змест якога даносіцца сродкамі танца, мімікі і музыкі, а таксама музычны твор, які ляжыць у аснове такога спектакля. **3.** Калектыў артыстаў, якія выконваюць такое прадстаўленне. ‖ *прым.* **бале́тны**, -ая, -ае. *Балетная школа.*

**БАЛЕТАМА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Заўзяты аматар балета як відовішча. ‖ *ж.* **балетама́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **балетама́нскі**, -ая, -ае.

**БАЛЕТАМА́НІЯ**, -і, *ж.* Надзвычайнае захапленне балетам як відовішчам.

**БАЛЕТМА́ЙСТАР**, -тра, *мн.* -тры, -траў, *м.* Пастаноўшчык танцаў у балеце (у 2 знач.). ‖ *прым.* **балетма́йстарскі**, -ая, -ае.

**БАЛЕ́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ліць; *незак.* **1.** Выклікаць адчуванне болю. *Сэрца баліць. Баліць* (безас.) *пад лыжачкай. Душа баліць* (перан.). **2.** *перан.* Хваляваць, турбаваць. *Шчыраму сэрцу і чужая болька баліць.*

**БАЛЕ́ЦЬ**[2], -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак., за каго-што* (разм.). Востра перажываць за поспехі ці няўдачы спартыўнай каманды, за выступленне спартсмена і пад. *Б. за зборную краіны.*

**БАЛЕ́Я**, -і, *мн.* -і, -ле́й, *ж.* Вялікая нізкая драўляная або металічная пасудзіна для мыцця бялізны. *Паласкаць бялізну ў балеі.* ‖ *памянш.* **бале́йка**, -і, *ДМ* -ле́йцы, *мн.* -і, -ле́ек, *ж.* ‖ *прым.* **бале́йны**, -ая, -ае.

**БАЛІ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікі яркі метэор. ‖ *прым.* **балі́дны**, -ая, -ае.

**БАЛІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Раздзел тэарэтычнай механікі, які вывучае законы руху цяжкага цела, кінутага пад некаторым вуглом да гарызонту. **2.** Навука аб законах руху снарадаў. ‖ *прым.* **балісты́чны**, -ая, -ае. *Балістычная ракета.*

**БАЛКА́РЦЫ**, -аў, *адз.* -рац, -рца, *м.* Народ цюркскай моўнай групы, які складае частку насельніцтва Кабардзіна-Балкарыі, што ўваходзіць у Расійскую Федэрацыю. ‖ *ж.* **балка́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **балка́рскі**, -ая, -ае.

**БАЛКО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пляцоўка з поручнямі, прыбудаваная знадворку да сцяны дома. *Адпачываць на балконе.* **2.** Сярэдні або верхні ярус у тэатры. ‖ *памянш.* **балко́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **балко́нны**, -ая, -ае. *Балконныя дзверы.*

**БАЛО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяльная пасудзіна для вадкасцей ці газаў. *Газавы б.* **2.** Гумавая аўтамабільная або іншая камера, якая напаўняецца паветрам. *Залатаны б.* **3.** Абалонка аэрастата, дырыжабля, якая напаўняецца газам (спец.). ‖ *памянш.* **бало́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **бало́нны**, -ая, -ае.

**БАЛО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Парода маленькіх хатніх сабачак з доўгай шаўкавістай поўсцю.

**БАЛО́ТА**, -а, *М* -ло́це, *мн.* -ы, -ло́т, *н.* **1.** Нізкае багністае месца са стаячай вадой. *Куп'істае б. Вада патыхае балотам.* **2.** Вялікая гразь на вуліцы, у двары (разм.). **3.** *перан.* Усё, што характарызуецца застоем, бяздзейнасцю, маральным падзеннем. ‖ *памянш.* **бало́тца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **бало́тны**, -ая, -ае. *Балотная расліннасць.*

**БАЛО́ЦІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Багаты на балоты. *Б. край.* **2.** Забалочаны, багністы. *Балоцістая мясцовасць.* ‖ *наз.* **бало́цістасць**, -і, *ж.*

**БА́ЛТЫ**, -аў. Група старажытных індаеўрапейскіх плямён, якія гаварылі на балтыйскіх мовах. ‖ *прым.* **ба́лцкі**, -ая, -ае.

**БАЛЫ́К**, -у́, *м.* Прасоленая і праўляленая або правэнджаная хрыбтовая частка асятровых і ласасёвых рыб. *Асятровы б.* ‖ *прым.* **балыко́вы**, -ая, -ае. *Балыковыя вырабы.*

**БАЛЬ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Вечар з танцамі і забавамі. *Выпускны б.* **2.** Вялікі званы абед. **3.** *перан.* Нястомны разгул чаго-н. (рэакцыі, ваеншчыны і пад.). ○ **Баль-маскарад** — касцюміраваны вечар з танцамі. ‖ *прым.* **ба́льны**, -ая, -ае. *Бальныя танцы.*

**БАЛЬЗА́КАЎСКІ**, -ая, -ае У выразе: **бальзакаўскі ўзрост** — узрост жанчыны ад 30 да 40 гадоў.

**БАЛЬЗА́М**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Густое духмянае рэчыва, у складзе якога эфірны алей, смолы і іншыя кампаненты, а таксама пахучая настойка на лекавых травах. *Піхтавы б. Б. вырабляюць з кедравай жывіцы.* **2.** *перан.* Тое, што прыносіць суцяшэнне, заспакаенне. *Б. гаючы.* ‖ *прым.* **бальзамі́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **бальза́мны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Бальзамныя кедры.*

**БАЛЬЗАМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *незак., каго-што.* Насычаць труп спецыяльнымі рэчывамі, каб прадухіліць гніенне і захаваць на доўгі час. ‖ *зак.* **забальзамава́ць**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны *і* **набальзамава́ць**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны. ‖ *наз.* **бальзамава́нне**, -я, *н.*

**БАЛЬЗАМІ́НА**, -ы, *ж. і* **БАЛЬЗАМІ́Н**, -а, *м.* Садовая і пакаёвая расліна сямейства бальзамінавых з яркімі ружовымі кветкамі. *Радуе вока б.* ‖ *прым.* **бальзамі́навы**, -ая, -ае.

**БАЛЬНЕАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Галіна медыцыны, якая вывучае лячэбнае выкарыстанне і ўздзеянне мінеральных вод і гразей. ‖ *прым.* **бальнеалагі́чны**, -ая, -ае.

**БАЛЬНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* Медыцынская ўстанова для стацыянарнага лячэння хворых. ‖ *прым.* **бальні́чны**, -ая, -ае. *Бальнічнае адзенне.* ○ **Бальнічны ліст** — дакумент аб часовай непрацаздольнасці.

**БА́ЛЬНЫ**[1] *гл.* бал.

**БА́ЛЬНЫ**[2] *гл.* баль.

**БАЛЬШАВІ́ЗМ**, -у, *м.* Палітычная рэвалюцыйная плынь у рабочым руху, якая ўзнікла ў Расіі ў пачатку 20 ст. на базе марксісцкай тэорыі, развітай затым партыяй бальшавікоў. ‖ *прым.* **бальшаві́цкі**, -ая, -ае.

**БАЛЬШАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (гіст.). Член бальшавіцкай партыі. ‖ *ж.* **бальшаві́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **бальшаві́цкі**, -ая, -ае.

**БАЛЬША́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Вялікая дарога (у адрозненне ад прасёлачнай). *Пралеглі бальшакі з бярозавымі прысадамі.*

**БАЛЬШУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Старэйшы хлапчук з дзяцей у сям'і, наогул большы па ўзросце. *Ты ж б., а малога крыўдзіш.* ‖ *ж.* **бальшу́ха**, -і, *ДМ* -шу́се, *мн.* -і, -шу́х.

**БАЛЮСТРА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ра́д, *ж.* Поручні з фігурнымі слупкамі, што ўпрыгожваюць балконы, тэрасы, галерэі, лесвіцы. *Б. веранды.* ‖ *прым.* **балюстра́дны**, -ая, -ае.

**БАЛЮ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выклікае адчуванне фізічнага болю. *Б. ўкол.* **2.** Пашкоджаны хваробай, раненнем. *Балючая нага.* **3.** *перан.* Які прычыняе душэўныя хваляванні; найбольш хвалюючы. *Балючае пытанне.* ‖ *наз.* **балю́часць**, -і, *ж.*

**БАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; *незак.* **1.** Спраўляць баль; удзельнічаць у балі. **2.** Разгульна жыць (разм.). *Б. тыднямі.* ‖ *наз.* **балява́нне**, -я, *н.*

**БАЛЯ́СА**, -ы, *мн.* -ы, -ля́с, *ж.* **1.** Точаны фігурны слупок у агароджы балконаў, тэрас і інш. **2.** толькі *мн.* Агароджа з такіх слупкоў.

**БАЛЯ́СНІК**, -у, *м.* Матэрыял для вырабу баляс.

**БАЛЯ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Тое, што і *болька.* **2.** *перан.* Недахоп, слабае месца ў дзейнасці, характары, а таксама чалавек з якімі-н. недахопамі, з-за якога бываюць непрыемнасці ў калектыве.

**БАМБАВО́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *бамбардзіроўшчык* (у 1 знач.). *Смертаносны груз бамбавозаў.* ‖ *прым.* **бамбаво́зны**, -ая, -ае.

**БАМБАРДЗІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Салдацкі артылерыйскі чын у царскай арміі і флоце, а таксама асоба, якая мае такое

званне. **2.** Ігрок, які часта забівае галы (у футболе, хакеі). *Лепшы б. сезона.* ‖ *прым.* **бамбардзі́рскі**, -ая, -ае.

**БАМБАРДЗІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Абстрэльваць з гармат або скідваць з самалёта бомбы на каго-, што-н. *Б. праціўніка.* **2.** *перан., каго (што) чым.* Настойліва турбаваць каго-н. лістамі, просьбамі і інш. (разм.). *Б. пісьмамі.* ‖ *наз.* **бамбардзіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **бамбардзіро́вачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**БАМБАРДЗІРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Бамбардзіровачны самалёт. **2.** Лётчык бамбардзіровачнай авіяцыі.

**БАМБАСХО́ВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *н.* Спецыяльнае ўкрыцце, якое забяспечвае ахову людзей ад авіябомбаў.

**БАМБІ́ЦЬ**, -блю́, -бі́ш, -бі́ць; -бі́м, -біце́, -бя́ць; *незак., каго-што.* **1.** Атакаваць з паветра, скідваючы бомбы. **2.** *перан.* Безупынна турбаваць каго-н. просьбамі, лістамі і пад. (разм.). ‖ *наз.* **бамбёжка**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* (да 1 знач.; разм.). *Трапіць пад бамбёжку.*

**БАМБУ́К**, -у, *м.* Трапічная і субтрапічная расліна з высокім дрыввяністым вузлаватым сцяблом, пустым усярэдзіне. ‖ *прым.* **бамбу́кавы**, -ая, -ае. *Бамбукавыя зараснікі.*

**БАНА́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* банальны. **2.** Збітая, агульнавядомая думка, выраз. *Гаварыць банальнасці.*

**БАНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Шаблонны, які страціў арыгінальнасць у сувязі з частым ужываннем. *Банальныя параўнанні.* ‖ *наз.* **бана́льнасць**, -і, *ж.*

**БАНА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пальмападобная трапічная расліна, а таксама яе мучністы салодкі плод. *Збор бананаў.* ‖ *прым.* **бана́навы**, -ая, -ае. *Бананавыя плантацыі.*

**БА́НДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, банд *і* -аў, *ж.* Група разбойнікаў, злачынцаў; шайка. *Узброеная б. Б. рабаўнікоў.*

**БАНДА́Ж**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (спец.). **1.** Спецыяльны пругкі пояс для падтрымання асобных частак цела ў патрэбным становішчы. **2.** Металічны вобад, які надзяваецца на часткі машын, на колы вагонаў, каб забяспечыць іх устойлівасць і засцерагчы ад зносу. ‖ *прым.* **банда́жны**, -ая, -ае.

**БАНДА́РНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да вырабу драўлянага посуду (бочак, дзежак, цэбраў і пад.). *Бандарная майстэрня.*

**БАНДА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* Займацца вырабам драўлянага посуду (бочак, дзежак, цэбраў і пад.). ‖ *наз.* **бо́ндарства**, -а, *н.*

**БАНДЗЮ́ГА**, -і, *мн.* -і, -дзюг *і* **БАНДЗЮ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм., зневаж.). Тое, што і *бандыт.*

**БАНДУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, банду́р, *ж.* **1.** Украінскі народны шматструнны шчыпковы музычны інструмент. **2.** *перан.* Пра вялікі груваскі прадмет (разм.). ‖ *прым.* **банду́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**БАНДУРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на бандуры. ‖ *ж.* **бандуры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. *Трыа бандурыстак.*

**БАНДЫ́Т**, -а, *М* -ды́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік банды; узброены разбойнік. *Мацёры б.* ‖ *ж.* **банды́тка**, -і, *М* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **банды́цкі**, -ая, -ае. *Бандыцкая куля.*

**БАНДЫТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Злачынная дзейнасць бандытаў, звязаная з удзелам у разбоях, грабяжах, рабаваннях.

**БАНДЭРО́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Шырокая папяровая абгортка для паштовых перасылак. **2.** Невялікае паштовае адпраўленне звычайна ў папяровай абгортцы. *Заказная б.* **3.** Ярлык на тавары, які сведчыць аб уплаце пошліны за яго (спец.). ‖ *прым.* **бандэро́льны**, -ая, -ае.

**БАНК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Крэдытна-фінансавая ўстанова, якая канцэнтруе грашовыя сродкі і праводзіць з імі розныя аперацыі. *Нацыянальны б. Беларусі.* ‖ *прым.* **ба́нкаўскі**, -ая, -ае *і* **ба́нкавы**, -ая, -ае. *Банкаўскі служачы. Банкавы білет.*

**БАНК**[2], -а, *м.* **1.** У картачнай гульні: грошы, якія пастаўлены на кон. *Сарваць б.* **2.** Азартная картачная гульня.

**БАНК**[3], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Фонд якіх-н. даных, што захоўваюцца для інфармацыйных і іншых мэт. *Б. звестак. Б. ведаў.*

**БА́НКА**[1], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* У выразе: **лейдэнская банка** — фізічны прыбор для кандэнсацыі электрычнасці.

**БА́НКА**[2], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (спец.). Падводная водмель.

**БА́НКА**[3], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (спец.). Папярочная лаўка на вёсельным судне для весляроў і пасажыраў.

**БАНКЕ́Т**, -у, *М* -ке́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урачысты абед ці вячэра з нагоды якой-н. падзеі ці ў гонар каго-, чаго-н. *Б. у гонар 50-годдзя інстытута.* ‖ *прым.* **банке́тны**, -ая, -ае. *Банкетная зала.*

**БАНКЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Тып нізкай табурэткі з мяккім сядзеннем.

**БАНКІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Уладальнік або буйны акцыянер банка[1]. ‖ *прым.* **банкі́рскі**, -ая, -ае.

**БАНКНО́ТЫ**, -аў, *адз.* банкно́т, -а, *М* -но́це, *м.* Грашовыя знакі, зробленыя з паперы ці іншых матэрыялаў, звычайна прамавугольнай формы. ‖ *прым.* **банкно́тны**, -ая, -ае. *Банкнотнае абарачэнне.*

**БАНКРУ́Т**, -а, *М* -кру́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Збяднелы неплацежаздольны даўжнік. **2.** *перан.* Той, хто пацярпеў поўную няўдачу, крах у ажыццяўленні чаго-н. *Маральны б.* ‖ *прым.* **банкру́цкі**, -ая, -ае.

**БАНКРУ́ЦТВА**, -а, *н.* **1.** Неплацежаздольнасць у выніку разарэння даўжніка. *Б. фірмы.* **2.** *перан.* Крушэнне, поўная няўдача ў ажыццяўленні чаго-н. *Поўнае б.*

**БАНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Стужка, завязаная ў выглядзе вузла і дзвюх або некалькіх свабодна выпушчаных петляў. *Б. у косах.* ‖ *памянш.* **ба́нцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**БА́НЬКА**[1], -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* Шырокае металічнае кольца для прымацавання касы да касся. *Б. ад касы.*

**БА́НЬКА**[2] *гл.* банькі.

**БА́НЬКІ**, -нек, *адз.* ба́нька, -і, *ДМ* -ньцы, *ж.* Набор невялікіх шклянак, які ўжыв. ў медыцыне, каб выклікаць прыліў крыві да скуры. *Паставіць б.*

**БАПТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік хрысціянскай секты, які прапаведуе хрышчэнне ў сталым узросце і адмаўляе некаторыя абрады і догматы царквы. ‖ *ж.* **бапты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **бапты́сцкі**, -ая, -ае. *Баптысцкая секта.*

**БАР**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Невялікі рэстаран або частка яго, дзе звычайна наведвальнікаў абслугоўваюць ля высокай стойкі, а таксама гэтая стойка. **2.** Невялікая шафка для він або аддзяленне для він у шафе ці серванце.

**БАР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Адзінка вымярэння атмасфернага ціску.

**БАРАБА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Ударны мембранны музычны інструмент у выглядзе шырокага цыліндра, верх і ніз якога абцягнуты скурай. *Біць у б.* **2.** У розных машынах і механізмах: рухомая частка, якая мае форму цыліндра (спец.). *Падаваць снапы ў б.* **3.** Цыліндрычная частка будынка, якая падтрымлівае купал (спец.). ‖ *прым.* **бараба́нны**, -ая, -ае.

**БАРАБА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.* **1.** Біць у барабан (у 1 знач.). **2.** Часта і дробна стукаць па чым-н. (разм.). *Дождж барабаніць.* **3.** *перан., што і без дап.* Гучна, невыразна, без майстэрства гаварыць, чытаць, іграць на якім-н. інструменце.

**БАРАБА́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто адбівае такт на барабане пры маршыроўцы; музыкант, які іграе на барабане. *Юны б.* ‖ *ж.* **бараба́ншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **бараба́ншчыцкі**, -ая, -ае.

**БАРАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Высокакаштоўны ядомы грыб з карычневай шапкай і белай тоўстай ножкай; белы грыб. *Кошык баравікоў. Заечы б.* ‖ *прым.* **баравіко́вы**, -ая, -ае.

**БАРАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* Узвышаны ўчастак лесу ў бары. *Грыбныя баравіны.* ‖ *памянш.* **бараві́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**БАРАВІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* баравіна. **2.** Сорт летняй яблыні, а таксама светла-жоўтыя кісла-салодкія плады гэтага дрэва. *У садзе спеюць баравінкі.*

**БАРАВЫ́** *гл.* бор[1].

**БАРАДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *мн.* баро́ды *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) барады́, -ро́д, *ж.* **1.** Пярэдняя частка ніжняй сківіцы. *Ударыўся барадой аб стол.* **2.** Валасяное покрыва ніжняй часткі твару. *Адпусціць бараду.* **3.** *перан.* Пра чалавека з такім валасяным покрывам (разм.). *Давайце выберам старшынёй бараду.* **4.** У некаторых жывёл: пучок валасоў, пер'я або мясістыя адросткі пад

**БЕСКАРЫ́СЛІВЫ**, -ая, -ае. Які не звязаны з асабістай выгадай. *Б. чалавек. Б. ўчынак.* ‖ *наз.* **бескарыслівасць**, -і, *ж.*

**БЕСКАРЫ́СНЫ**, -ая, -ае. Які не прыносіць ніякай карысці; дарэмны. *Б. занятак.* ‖ *наз.* **бескарыснасць**, -і, *ж.*

**БЕСКАСЦЁВЫ**, -ая, -ае. Які не мае касцяка, касцей.

**БЕСКВАТЭ́РНЫ**, -ая, -ае. Які не мае кватэры.

**БЕСКЛАПО́ТНЫ**, -ая, -ае. Які не праяўляе клопату, турбот пра свае справы, паводзіны і пад. *Б. чалавек.* ‖ *наз.* **бесклапо́тнасць**, -і, *ж.*

**БЕСКУЛЬТУ́Р'Е**, -я, *н.* (разм.). Тое, што і *бескультурнасць.*

**БЕСКУЛЬТУ́РНАСЦЬ**, -і, *ж.* Адсутнасць усякай культуры.

**БЕСПАВАРО́ТНЫ**, -ая, -ае. Канчатковы, які не будзе зменены. *Беспаваротнае рашэнне.* ‖ *наз.* **беспаваро́тнасць**, -і, *ж.*

**БЕСПАВЕ́ТРАНЫ**, -ая, -ае. Не запоўнены паветрам. *Беспаветраная прастора.*

**БЕСПАДСТА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які не мае пад сабою падстаў; нічым не абгрунтаваны. *Беспадстаўнае абвінавачванне.* ‖ *наз.* **беспадста́ўнасць**, -і, *ж.*

**БЕСПАЗВАНО́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які не мае пазваночніка. *Беспазваночныя жывёлы. Атрад беспазваночных* (наз.).

**БЕСПАКАРА́НЫ**, -ая, -ае. Які астаўся непакараны, не атрымаў пакарання. *Беспакаранае злачынства. Прайсці беспакарана* (прысл.). ‖ *наз.* **беспакара́насць**, -і, *ж.*

**БЕСПАМЫЛКО́ВЫ**, -ая, -ае. Правільны, без памылак. *Беспамылковае рашэнне.* ‖ *наз.* **беспамылко́васць**, -і, *ж.*

**БЕСПАРА́ДАК**, -дку, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* **1.** Адсутнасць парадку. *У хаце б. Валяцца ў беспарадку.* **2.** звычайна *мн.* Масавыя народныя хваляванні як форма пратэсту супраць улады. *Беспарадкі ў казармах.*

**БЕСПАРА́ДКАВЫ**, -ая, -ае. **1.** У якім няма парадку, бессістэмны. *Беспарадкавае апісанне.* **2.** Неарганізаваны, стыхійны. *Беспарадкавая мітусня.* ‖ *наз.* **беспара́дкавасць**, -і, *ж.*

**БЕСПАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. Непародзісты, у якога адсутнічаюць прыкметы добрай пароды. *Беспародная жывёла.*

**БЕСПАРТЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які не з'яўляецца членам якой-н. партыі. ‖ *наз.* **беспарты́йнасць**, -і, *ж.*

**БЕСПАСА́ДАЧНЫ**, -ая, -ае. Які ажыццяўляецца без пасадак самалёта на прамежкавых пунктах. *Б. пералёт.*

**БЕСПАСА́ЖНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* (уст.). Бедная дзяўчына, якая не мае пасагу.

**БЕСПАСПЯХО́ВЫ**, -ая, -ае. Які не прыносіць поспеху, не дасягае пэўнай мэты; няўдалы. *Беспаспяховыя пошукі.* ‖ *наз.* **беспаспяхо́васць**, -і, *ж.*

**БЕСПЕРАБО́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца без перабояў, без затрымак. *Бесперабойнае забеспячэнне.* ‖ *наз.* **бесперабо́йнасць**, -і, *ж.*

**БЕСПЕРАПЫ́ННЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца без перапынкаў, пастаянна. *Б. гул матораў. Дождж ідзе бесперапынна* (прысл.). ‖ *наз.* **бесперапы́ннасць**, -і, *ж.*

**БЕСПЕРАСА́ДАЧНЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца без перасадак. *Б. рэйс.*

**БЕСПЕРАШКО́ДНЫ**, -ая, -ае. Які не мае перашкод, не звязаны з імі. *Б. выезд.* ‖ *наз.* **бесперашко́днасць**, -і, *ж.*

**БЕСПЕРСПЕКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены перспектыў, будучага. *Б. план.* ‖ *наз.* **бесперспекты́ўнасць**, -і, *ж.*

**БЕСПРАБУ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пра сон: моцны, працяглы. *Б. сон. Спаць беспрабудна* (прысл.). **2.** *перан.* Пра п'яніц, п'янства: бесперапынны, пастаянны. *Б. п'яніца.* ‖ *наз.* **беспрабу́днасць**, -і, *ж.*

**БЕСПРАДМЕ́ТНЫ**, -ая, -ае. Які не мае пэўнай мэты; без зместу. *Беспрадметныя спрэчкі.* ‖ *наз.* **беспрадме́тнасць**, -і, *ж.*

**БЕСПРАСВЕ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Вельмі цёмны; бясконцы (пра дождж, цемру і пад.). *Беспрасветная ноч.* **2.** *перан.* Вельмі сумны, без надзеі на што-н. лепшае. *Б. сум.* ‖ *наз.* **беспрасве́тнасць**, -і, *ж.*

**БЕСПРАЦО́ЎЕ**, -я, *н.* **1.** Сацыяльна-эканамічная з'ява, калі частка працаздольнага насельніцтва не знаходзіць сабе рабочага месца; наяўнасць беспрацоўных. *Рост беспрацоўя.* **2.** Стан беспрацоўнага чалавека.

**БЕСПРАЦО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які не мае работы; пазбаўлены магчымасці атрымліваць пастаянны заробак. *Беспрацоўныя рабочыя. Дапамога беспрацоўным* (наз.).

**БЕСПРАЦЭ́НТНЫ**, -ая, -ае. На які не налічваюцца працэнты. *Беспрацэнтная пазыка.*

**БЕСПРЫНЦЫПО́ВЫ**, -ая, -ае. Які не мае ніякіх прынцыпаў, пазбаўлены маральных асноў. *Б. чалавек.* ‖ *наз.* **беспрынцыпо́васць**, -і, *ж.*

**БЕСПРЫТУ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Бяздомнае дзіця, падлетак, у якіх няма бацькоў і якія жывуць без выхавання, догляду. ‖ *ж.* **беспрыту́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**БЕСПРЫТУ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае ні бацькоў, ні прытулку; бяздомны. *Беспрытульнае дзіця.* **2.** *перан.* Пазбаўлены належнага догляду; занядбаны. *Беспрытульная гаспадарка.* ‖ *наз.* **беспрыту́льнасць**, -і, *ж.*

**БЕСПРЫЧЫ́ННЫ**, -ая, -ае. Які не мае ніякай прычыны; беспадстаўны. *Б. смех.* ‖ *наз.* **беспрычы́ннасць**, -і, *ж.*

**БЕСПРЭЦЭДЭ́НТНЫ**, -ая, -ае. Які не мае прэцэдэнту, прыкладу ў мінулым. *Б. выпадак.* ‖ *наз.* **беспрэцэдэ́нтнасць**, -і, *ж.*

**БЕСПЯРЭ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які выконваецца без пярэчанняў. *Беспярэчнае выкананне пастановы.* ‖ *наз.* **беспярэ́чнасць**, -і, *ж.*

**БЕССАРДЭ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены сардэчнасці, чуласці ў адносінах з людзьмі, бяздушны, жорсткі. *Бессардэчная жанчына. Б. ўчынак.* ‖ *наз.* **бессардэ́чнасць**, -і, *ж.*

**БЕССАРО́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Бессаромны, нясціплы чалавек. ‖ *ж.* **бессаро́мніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**БЕССАРО́МНЫ**, -ая, -ае. Які не мае сораму; нахабны. *Бессаромныя паводзіны.* ‖ *наз.* **бессаро́мнасць**, -і, *ж.*

**БЕССІСТЭ́МНЫ**, -ая, -ае. Не прыведзены ў пэўную сістэму; бязладны. *Бессістэмная лекцыя. Выкладаць бессістэмна* (прысл.). ‖ *наз.* **бессістэ́мнасць**, -і, *ж.*

**БЕССМЯРО́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ніколі не памірае, вечна жывы. *Б. народ.* **2.** Які застаецца назаўсёды ў памяці людзей, неўміручы (высок.). *Б. подзвіг. Бессмяротнае імя.* ‖ *наз.* **бессмяро́тнасць**, -і, *ж.*

**БЕСТАКТО́ЎНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* бестактоўны. **2.** Бестактоўны ўчынак. *Не дазволіць бестактоўнасці.*

**БЕСТАКТО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які не прытрымліваецца такту ў абыходжанні з людзьмі. *Бестактоўныя паводзіны.* ‖ *наз.* **бестакто́ўнасць**, -і, *ж.*

**БЕСТАЛКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Някемлівы, нездагадлівы. *Б. чалавек.* **2.** Бязладны, бессістэмны, хаатычны. *Б. адказ вучня.* ‖ *наз.* **бесталко́васць**, -і, *ж.*

**БЕСТАЛКО́ЎШЧЫНА**, -ы, *ж.* (разм.). Адсутнасць толку ў чым-н.; дрэнная арганізацыя якой-н. справы, неразбярыха.

**БЕСТСЕ́ЛЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Папулярная кніга, фільм і пад., якія маюць камерцыйны поспех. *Гэты раман — першы б. аўтара.*

**БЕСТУРБО́ТНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *бесклапотны.* ‖ *наз.* **бестурбо́тнасць**, -і, *ж.*

**БЕСТЭРМІНО́ВЫ**, -ая, -ае. Які не абмежаваны тэрмінам. *Б. пашпарт. Бестэрміновае карыстанне.* ‖ *наз.* **бестэрміно́васць**, -і, *ж.*

**БЕСХАРА́КТАРНЫ**, -ая, -ае. Бязвольны, які лёгка паддаецца чужому ўздзеянню. *Бесхарактарная асоба.* ‖ *наз.* **бесхара́ктарнасць**, -і, *ж.*

**БЕСХРЫБЕ́ТНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які не мае хрыбта, пазваночніка. **2.** *перан.* Які не мае цвёрдага характару, пэўнай лініі паводзін; беспрынцыповы. ‖ *наз.* **бесхрыбе́тнасць**, -і, *ж.*

**БЕСЦЫРЫМО́ННЫ**, -ая, ае. Які выходзіць за межы ветлівасці, не прытрымліваецца агульнапрынятых норм паводзін; развязны. ‖ *наз.* **бесцырымо́ннасць**, -і, *ж.*

**БЕСЧАЛАВЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які не мае літасці, жорсткі, люты. *Бесчалавечныя адносіны.* ‖ *наз.* **бесчалаве́чнасць**, -і, *ж.*

**БЕТАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *незак., што.* Запаўняць, пакрываць бетонам. ‖ *зак.* **забетанава́ць**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны. ‖ *наз.* **бетанава́нне**, -я, *н.*

**БЕТО́Н**, -у, *м.* Будаўнічы матэрыял, атрыманы з сумесі цэменту, вады і іншых запаўняльнікаў, які цвярдзее пасля ўкладкі. ‖ *прым.* **бето́нны**, -ая, -ае.

**БЕТОНАМЯША́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Машына для перамешвання сумесі пры вырабе бетону.

**БЕТО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Дарога, пляцоўка і пад., пакрытая бетонам.

**БЕТО́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па бетонных работах. ‖ *ж.* **бето́ншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**БЕФСТРО́ГАНАЎ**, *нескл., м.* Страва, прыгатаваная з невялікіх кавалачкаў мяса, тушаных у соусе.

**БЕШМЕ́Т**, -а, *М* -ме́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Верхняя доўгая мужчынская вопратка ў некаторых народаў Каўказа і Сярэдняй Азіі.

**БЁРДА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Прылада ў ткацкім станку з тонкіх пласцінак для прыбівання ўточнай ніткі.

**БЗІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Дзівацтва, капрыз. *Гэты чалавек з бзікам.*

**БЗЫК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Гук, які ўтвараецца крыламі насякомых у час палёту; гудзенне. *Б. камароў.*

**БЗЫ́КАЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ае; *незак.* (разм.). Утвараць крыламі спецыфічны гук (пра некаторых насякомых). ‖ *аднакр.* **бзы́кнуць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не. ‖ *наз.* **бзы́канне**, -я, *н.*

**БІБЛІЁГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне бібліяграфіі (у 1 знач.).

**БІ́БЛІЯ**, -і, *ж.* (з вялікай літары). Збор кананізаваных свяшчэнных кніг іўдзейскай і хрысціянскай рэлігій. ‖ *прым.* **біблé́йскі**, -ая, -ае. *Біблейскае паданне.*

**БІБЛІЯГРА́ФІЯ**, -і, *мн.* -і, -фій, *ж.* **1.** Навуковае сістэматызаванае апісанне кніг і іншых выданняў, зробленае па якой-н. прыкмеце. **2.** Спіс кніг і артыкулаў па якім-н. пытанні, прадмеце. *Б. па гісторыі.* ‖ *прым.* **бібліяграфі́чны**, -ая, -ае.

**БІБЛІЯТЭ́КА**, -і, *ДМ* -тэ́цы, *мн.* -і, -тэ́к, *ж.* **1.** Установа, якая збірае і захоўвае кнігі для грамадскага карыстання. *Нацыянальная б. Беларусі.* **2.** Збор кніг, якія з'яўляюцца прыватнай або грамадскай уласнасцю, а таксама памяшканне, дзе яны захоўваюцца. *Б. вучонага.* **3.** Назва серыі кніг пэўнай тэматыкі. *Б. паэта. Б. настаўніка.* ‖ *памянш.* **бібліятэ́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 3 знач.). ‖ *прым.* **бібліятэ́чны**, -ая, -ае. *Бібліятэчная справа.*

**БІБЛІЯТЭ́КАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік бібліятэкі (у 1 знач.). ‖ *ж.* **бібліятэ́карка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **бібліятэ́карскі**, -ая, -ае.

**БІБЛІЯФІ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аматар і збіральнік кніг, асабліва рэдкіх і каштоўных. ‖ *ж.* **бібліяфі́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **бібліяфі́льскі**, -ая, -ае.

**БІБЛІЯФІ́ЛЬСТВА**, -а, *н.* Любоў да кніг, захапленне збіральніцтвам рэдкіх і каштоўных выданняў. ‖ *прым.* **бібліяфі́льскі**, -ая, -ае.

**БІВА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Прывал войск па-за населеным пунктам для адпачынку ці начлегу. **2.** Стаянка альпіністаў, турыстаў. ‖ *прым.* **біва́чны**, -ая, -ае.

**БІГУДЗІ́**, *нескл., мн.* Трубачкі для завіўкі валасоў. *Накруціць валасы на б.*

**БІЁГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Складальнік чыёй-н. біяграфіі.

**БІЁЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне біялогіі.

**БІЁНІКА**, -і, *ж.* (спец.). Навука, якая рашае інжынерныя задачы на падставе аналізу структуры і жыццядзейнасці арганізмаў. ‖ *прым.* **біяні́чны**, -ая, -ае.

**БІ́ЗНЕС**, -у, *м.* Прадпрымальніцкая эканамічная дзейнасць, якая прыносіць даход, прыбытак. *Зрабіць б. на чым-н. Займацца бізнесам.*

**БІЗНЕСМЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прадпрымальнік, дзялок; той, хто займаецца бізнесам. ‖ *прым.* **бізнесме́нскі**, -ая, -ае.

**БІЗО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паўночнаамерыканскі дзікі бык атрада парнакапытных з доўгай поўсцю. ‖ *прым.* **бізо́навы**, -ая, -ае.

**БІЗУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Плецены з раменных палосак арапнік або вітая з ільну, канапель пуга. ◊ **Усыпаць бізуноў** (разм.) — пакараць каго-н., адсцябаць.

**БІКЛА́ГА**, -і, *ДМ* -ла́зе, *мн.* -і, бікла́г, *ж.* Невялікая драўляная ці металічная плоская пасудзіна для вады. *Салдацкая б.* ‖ *прым.* **бікла́жны**, -ая, -ае.

**БІКФО́РДАЎ**, -дава. У выразе: **бікфордаў шнур** — вогнеправодны шнур з парахавой сарцавінай, які служыць для перадачы іскры да зараду пры выбухах.

**БІ́ЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Унутраная ўдарная частка звона; язык (у 3 знач.). **2.** Падвешаны кавалак жалеза, рэйкі для падачы сігналаў. **3.** Верхняя скразная планка або жардзіна ў поручнях лесвіцы, мосце і пад.

**БІЛЕ́Т**, -а, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дакумент, які дае права карыстацца чым-н. *Б. у кіно. Праязны б. Запрашальны б.* **2.** Дакумент, які сведчыць аб прыналежнасці каго-н. да палітычнай або грамадскай арганізацыі. *Прафсаюзны б.* **3.** Лісток з пытаннямі да таго, хто трымае экзамен, іспыт. *Экзаменацыйны б.* ◊ **Белы білет** — пасведчанне аб нездольнасці выконваць ваенную службу. ‖ *прым.* **біле́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**БІЛЕЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кантралёр, які правярае ўваходныя білеты. ‖ *ж.* **білецёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **білецёрскі**, -ая, -ае.

**БІЛІНГВІ́ЗМ**, -у, *м.* Валоданне і папераменнае карыстанне адной і той жа асобай ці калектывам дзвюма рознымі мовамі; двухмоўе.

**БІЛЬЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лік, які мае выгляд адзінкі з дзевяццю нулямі ў ЗША і некаторых іншых краінах або адзінкі з дванаццаццю нулямі ў Германіі і іншых краінах Еўропы. ‖ *прым.* **більённы**, -ая, -ае.

**БІЛЬЯ́РД**, -а, *М* -дзе, *м.* **1.** Гульня шарамі і спецыяльным кіем на прызначаным для гэтай гульні стале. *Гуляць у б.* **2.** *мн.* -ы, -аў. Стол, абцягнуты сукном, з бартамі і лузамі для гэтай гульні. ‖ *прым.* **більярдны**, -ая, -ае.

**БІНО́КЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Ручная аптычная прылада з дзвюх паралельна злучаных падзорных труб для разглядвання аддаленых прадметаў. *Тэатральны б. Палявы б.*

**БІНО́М**, -а, *м.* Алгебраічны выраз, які ўяўляе сабой суму або розніцу адначленаў; двухчлен.

**БІНТ**, -у, *М* -нце, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Марлевая стужка для перавязкі ран, пераломаў і пад. *Перавязаць рану бінтам.* ‖ *памянш.* **бі́нцік**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **бінтавы́**, -а́я, -о́е. *Бінтавая павязка.*

**БІНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., каго-што.* Перавязваць бінтам. ‖ *зак.* **забінтава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *звар.* **бінтава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *зак.* **забінтава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся. ‖ *наз.* **бінтава́нне**, -я, *н.* і **бінто́ўка**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *ж.*

**БІПЛА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Самалёт з двума крыламі, размешчанымі адно пад адным. ‖ *прым.* **біпла́навы**, -ая, -ае.

**БІ́РЖА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Установа для заключэння фінансавых, камерцыйных здзелак. *Валютная б. Таварная б.* **2.** Вулічная стаянка рамізнікаў (уст.). ○ **Біржа працы** — дзяржаўная пасрэдніцкая ўстанова па найме рабочай сілы. ‖ *прым.* **біржавы́**, -а́я, -о́е.

**БІРЖАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто займаецца біржавымі аперацыямі.

**БІ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Невялікая дошчачка або кавалак кардону з надпісам (на таварах, на багажы і пад.). *Б. на чамадане.* **2.** Палачка або дошчачка, на якой нарэзамі вёўся ўлік чаго-н. (гіст.). **3.** *перан.* Характарыстыка (звычайна адмоўная), якая даецца каму-н. па шаблоне. *Павесіць бірку на чалавека.* ‖ *прым.* **бі́рачны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**БІРУЗА́**, -ы́, *ж.* Каштоўны непразрысты камень блакітнага або зеленаватага колеру. ‖ *прым.* **бірузо́вы**, -ая, -ае. *Б. пярсцёнак. Бірузовыя хвалі* (колерам падобныя на бірузу).

**БІРУ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* **1.** Маленькая точаная фігурка, якая ўжыв. ў гульні, дзе трэба дастаць адну за адной такія фігуркі, не зварухнуўшы астатніх. **2.** Падвеска на ланцужку кішэннага гадзінніка, бранзалета і пад. як упрыгожанне. ◊ **Гуляць у бірулькі** (разм., неадабр.) — займацца пустымі справамі, марна траціць час.

**БІС**, *выкл.* Выгук у тэатры, на канцэрце і пад., які выражае просьбу публікі паўтарыць выкананы нумар. *На біс праспяваць арыю Ленскага.*

**БІСЕКТРЫ́СА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́с, *ж.* У матэматыцы: прамая лінія, якая ідзе з вяршыні вугла і падзяляе яго папалам.

**БІ́СЕР**, -у, *м., зб.* Дробныя шкляныя або металічныя каляровыя пацеркі, якія ўжыв. для расшыўкі адзення або для рукадзелля. *Вышываць бісерам.* ◊ **Сыпаць бісер перад свіннямі** — дарэмна гаварыць аб чым-н. ці даказваць што-н. невуку. ‖ *прым.* **бі́серны**, -ая, -ае. *Б. почырк* (перан.: вельмі дробны).

**БІ́СЕРЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -рын, *ж.* Асобнае зерне бісеру. ‖ *памянш.* **бі́серынка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**БІСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак., што* і *без дап.* Выканаць (выконваць) твор на біс.

**БІСКВІ́Т**, -у, *М* -віце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пульхнае салодкае печыва з цеста, у якое пакладзена шмат узбітых яек. ‖ *прым.* **бісквітны**, -ая, -ае. *Бісквітнае піражнае.*

**БІТА́**, -ы́, *ДМ* біце́, *мн.* -ы́, біт, *ж.* У некаторых гульнях: прадмет, якім б'юць.

**БІ́ТВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Бой. *Б. за вызваленне Мінска.*

**БІ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* У картачнай гульні: карты, узятыя большай або казырнай картай.

**БІТКІ́**, -оў, *адз.* біто́к, -тка́, *м.* Круглыя катлеты з адбіўнога або здробненага мяса. *Б. ў смятане.*

**БІТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Металічная або пластмасавая пасудзіна цыліндрычнай формы з накрыўкай. *Малочны б.* ‖ *прым.* **біто́нны**, -ая, -ае.

**БІ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Забіты, зарэзаны; настраляны (пра дзічыну). *Б. вяпрук.* **2.** Разбіты на кавалкі, расколаты. *Б. посуд.* **3.** Валены. *Бітыя валёнкі.* ◊ **Бітая гадзіна** (разм.) — доўгі час, больш за гадзіну.

**БІ́ЎНІ**, -яў, *адз.* бі́вень, біўня, *м.* Вельмі развітыя іклы ці разцы ў некаторых млекакормячых. *Б. слана.*

**БІФШТЭ́КС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кавалак абсмажанай ялавічыны (з сярэдняй часткі хрыбта тушы).

**БІ́ЦЦА**, б'юся, б'е́шся, б'е́цца; б'ёмся, б'яцёся, б'юцца; бі́ся; *незак.* **1.** Наносіць пабоі адзін аднаму, распачынаць бойку. *Хлапчукі б'юцца.* **2.** Весці бой, змагацца. *Б. з ворагам.* **3.** Ударацца аб што-н., у што-н. *Б. аб сцяну.* **4.** Калаціцца, кідацца. *Б. ў знямозе.* **5.** *без дап.* Пульсаваць (пра сэрца, кроў). *Сэрца б'еuца.* **6.** *перан., над чым, з кім-чым* і *без дап.* Прыкладаць намаганні для дасягнення чаго-н. *Б. над рашэннем задачы.* **7.** Разбівацца (пра шкло, посуд). *Крышталь б'ецца.* ◊ **Біцца аб заклад** (разм.) — ісці ў заклад з кім-н. на грошы або на што-н. іншае. **Біцца як рыба аб лёд** (разм.) — без выніку і плёну намагацца, старацца, шукаючы выйсце з бядоты. ‖ *зак.* **пабі́цца**, -б'юся, -б'е́шся, -б'е́цца; -б'ёмся, -б'яце́ся, -б'ю́цца; -бі́ся (да 1—3, 5 і 7 знач.). ‖ *наз.* **біццё**, -я́, *н.* (да 5 знач.).

**БІЦЬ**, б'ю, б'еш, б'е; б'ём, б'яце́, б'юць; бі; бі́ты; *незак.* **1.** *каго (што).* Наносіць удары, збіваць каго-н. *Б. гарэзу дубцом.* **2.** *каго-што.* Наносіць паражэнне. *Б. ворага.* **3.** *каго (што).* Забіваць каго-н. (жывёлу, птушак і пад.). *Б. цюленяў.* **4.** *што.* Разбіваць, раздрабняць. *Б. посуд. Б. каменне.* **5.** Ударацць, стукаць. *Б. кувалдай. Святло б'е ў вочы* (перан.). **6.** *у што.* Ударамі ўтвараць гукі. *Б. у бубен.* **7.** *што* і *без дап.* Ударамі адзначаць што-н., гучаць, вызвоньваць, званіць. *Гадзіннік б'е.* **8.** *што.* Ударамі, гукамі абазначаць што-н. *Б. трывогу. Б. адбой.* **9.** Страляць, абстрэльваць. *Б'юць гарматы па акопах. Стрэльба добра б'е.* **10.** У спартыўных гульнях: накіроўваць у цэль. *Б. па варотах.* **11.** У шашках, шахматах, картачных гульнях: браць фігуру або пакрываць карту праціўніка, пазбаўляць удзелу ў гульні. *Б. ферзя. Б. валета.* **12.** *перан.* Едка высмейваць, крытыкаваць. *Словы паэта б'юць па бюракратызме.* **13.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *каго (што).* Трэсці (пра хваробу, страх і пад.; разм.). *Кашаль б'е.* **14.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Імкліва выцякаць адкуль-н. *Струмень б'е. Жыццё б'е* (перан.). **15.** *што.* Вырабляць пэўным спосабам. *Б. масла. Б. валёнкі.* ◊ **Бібікі біць** (разм., неадабр.) — гультаяваць, бяздзейнічаць. **Біць крыніцай** — бурна развівацца. **Біць на што** (разм.) — імкнуцца да чаго-н. **Біць па кішэні** (разм.) — уводзіць у страту. **Біць (сябе) у грудзі** (разм.) — клясціся, запэўніваць у чым-н. **Біць паклоны** (разм.) — пачціва прасіць каго-н. **Біць у адну кропку** — дамагацца аднаго чаго-н. **Біць у нос** (разм., неадабр.) — патыхаць якім-н. вострым пахам. **Ногі біць** (разм.) — натруджваць ногі працяглай і дарэмнай хадзьбою. **Як у бубен біць** (разм.) — гаварыць пра што-н. гучна, адкрыта. ‖ *зак.* **пабі́ць**, -б'ю, -б'е́ш, -б'е́; -б'ём, -б'яце́, -б'ю́ць; пабі́; -бі́ты (да 1—4 і 11 знач.), **прабі́ць**, -б'ю, -б'еш, -б'е; -б'ём, -б'яце́, -б'ю́ць; прабі́, -бі́ты (да 7, 8 і 13 знач.) *і* **разбі́ць**, разаб'ю́, разаб'е́ш, разаб'е́; разаб'ём, разаб'яце́, разаб'ю́ць; разбі́; разбі́ты (да 2 і 4 знач.). ‖ *наз.* **біццё**, -я́, *н.* (да 1, 4—6 і 14 знач.) *і* **бой**, бою, *М* у баі́, *м.* (да 7 і 9 знач.).

**БІ́ЦЭПС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая двухгаловая мышца, якая згінае руку ў локцевым суставе або галёнку ў каленным суставе. *Б. пляча. Б. бядра.*

**БІЦЮ́Г**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Рабочы конь — цяжкавоз буйной пароды. **2.** *перан.* Пра высокага, мажнога чалавека (разм.). *Такі б. сноўдаецца без справы.*

**БІЧ**[1], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Бізун, сплецены з дробных раменьчыкаў. *Ударыць бічом. Б. сатыры* (перан.). **2.** Ударная частка некаторых механізмаў. *Бічы ў цапах.* **3.** *перан., каго-чаго.* Бедства, няшчасце. *Брак — б. вытворчасці.*

**БІЧ**[2], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Чалавек, які не мае месца жыхарства і пэўных заняткаў.

**БІЧАВА́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; -чу́й; *незак., каго-што.* **1.** Біць, хвастаць бізуном, бічом[1] (у 1 знач.). **2.** *перан.* Выкрываць недахопы, рэзка крытыкаваць. *Б. бюракратаў.* ‖ *наз.* **бічава́нне**, -я, *н.*

**БІЯ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. біялагічны, напр.: *біяіндыкатар, біякібернетыка, біясістэма, біятэхналогія.*

**БІЯГРА́ФІЯ**, -і, *мн.* -і, -фій, *ж.* **1.** Апісанне жыцця і дзейнасці каго-н. *Б. Янкі Купалы.* **2.** *перан.* Гісторыя якіх-н. прадметаў, з'яў, падзей. *Кожная з'ява мае сваю біяграфію.* ‖ *прым.* **біяграфі́чны**, -ая, -ае. *Біяграфічныя звесткі.*

**БІЯЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Комплекс навук аб жывых арганізмах і іх узаемадзеянні з навакольным асяроддзем. ‖ *прым.* **біялагі́чны**, -ая, -ае. *Б. факультэт.*

**БІЯПО́ЛЕ**, -я, *мн.* -палі́, -палёў, *н.* У парапсіхалогіі: нябачнае поле (у 5 знач.), якое ствараецца якім-н. арганізмам ці групай арганізмаў вакол сябе.

**БІЯПСІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Высячэнне кавалачка жывой тканкі для мікраскапічнага аналізу ў дыягнастычных мэтах. *Рабіць біяпсію.* ‖ *прым.* **біяпсі́чны**, -ая, -ае.

**БІЯТЛАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца біятлонам. ‖ *ж.* **біятлані́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **біятлані́сцкі**, -ая, -ае.

**БІЯТЛО́Н**, -а, *м.* Від спорту, у якім лыжная гонка спалучаецца са стральбой з вінтоўкі на некалькіх агнявых рубяжах. ‖ *прым.* **біятло́нны**, -ая, -ае.

**БІЯТО́КІ**, -аў, *адз.* біято́к, -у, *м.* (спец.). Электрычныя напружанні ў органах, тканках і асобных клетачных элементах жывых арганізмаў.

**БЛА́ГА**, *безас., у знач. вык.* **1.** Пра дрэнныя, неспрыяльныя абставіны. *Жывецца не б.* **2.** Пра цяжкі фізічны або душэўны стан каго-н. *Чалавеку зрабілася б.*

**БЛАГАТА́**, -ы́, *ДМ* -гаце́, *ж.* (разм.). **1.** *зб.* благі. **2.** Благі, дрэнны чалавек. *Добраму чалавечку добра і ў запечку, а благаце — блага і на куце* (прыказка).

**БЛАГІ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які не мае станоўчых якасцей, не адпавядае патрабаванням. *Благія землі. Б. чалавек.* **2.** Дрэнны ў маральных адносінах. *Б. ўчынак.* **3.** Худы, хваравіты на выгляд. *Б. з твару.* **4.** Непрыемны для іншых (пра манеры, характар і пад.). *Благія прывычкі.* ◊ **Благія вочы** — у народным павер'і: вока, позірк якога прыносіць няшчасце. ‖ *наз.* **благата́**, -ы́, *ДМ* -гаце́, *ж.* (разм.).

**БЛАЖЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* (разм.). Худзець, марнець. *Дзіця на вачах блажэе.* ‖ *зак.* **паблажэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е.

**БЛАКА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, блака́д, *ж.* **1.** Акружэнне горада, крэпасці, войск праціўніка з мэтай адрэзаць ад навакольнага свету або знішчыць, а таксама ізаляцыя якой-н. дзяржавы. *Б. Ленінграда. Эканамічная б.* **2.** Выключэнне функцый якога-н. органа або сістэмы арганізма (спец.). *Навакаінавая б.* ‖ *прым.* **блака́дны**, -ая, -ае.

**БЛАКГА́ЎЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Абарончае ўмацаванае збудаванне для вядзення кру-

гавога кулямётнага або артылерыйскага агню. ‖ *прым.* **блакаўзны**, -ая, -ае.

**БЛАКІРАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.* **1.** *каго-што.* Арганізаваць (арганізоўваць) блакаду. *Б. партызан. Б. дарогу.* **2.** *што.* Закрыць (закрываць) пуць паміж станцыямі, карыстаючыся блакіроўкай (у 2 знач.; спец.). ‖ *наз.* **блакіраванне**, -я, *н.* і **блакіроўка**, -і, *ДМ* -роўцы, *ж.* (да 2 знач.).

**БЛАКІРОЎКА**, -і, *ДМ* -роўцы, *ж.* **1.** *гл.* блакіраваць. **2.** *мн.* -і, -ровак. Сістэма сігнальных канструкцый для рэгулявання руху цягнікоў. ‖ *прым.* **блакіровачны**, -ая, -ае.

**БЛАКІТ**, -у, *М* -кіце, *м.* **1.** Светла-сіні колер. *Б. азёр. Б. вачэй.* **2.** Чыстае яснае неба. *Ні хмурынкі на блакіце.*

**БЛАКІТНАВОКІ**, -ая, -ае. З блакітнымі вачамі. *Блакітнавокая дзяўчынка.*

**БЛАКІТНЕЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -нее; *незак.* Станавіцца блакітным, набываць блакітны колер. *Неба блакітнее.*

**БЛАКІТНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Птушка атрада вераб'інападобных з рознакаляровай афарбоўкай пер'я.

**БЛАКІТНЫ**, -ая, -ае. Светла-сіні. *Блакітныя вочы. Край блакітных азёр.* ‖ *наз.* **блакітнасць**, -і, *ж.*

**БЛАКНОТ**, -а, *М* -ноце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Запісная кніжка з адрыўнымі лістамі. ‖ *прым.* **блакнотны**, -ая, -ае. *Блакнотныя лісткі.*

**БЛАНДЗІН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Светлавалосы мужчына. ‖ *ж.* **бландзінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**БЛАНК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ліст паперы з друкаваным загалоўкам установы, прадпрыемства або з часткова надрукаваным тэкстам, астатняя частка якога запаўняецца пры неабходнасці. *Тэлеграфны б.* ‖ *прым.* **бланкавы**, -ая, -ае.

**БЛАСЛАВЕННЫ**, -ая, -ае. Варты падзякі, хвалы, захаплення; шчаслівы, багаты. *Б. час. Б. край.*

**БЛАСЛАВІЦЬ**, -слаўлю, -славіш, -славіць; -славім, -славіце, -славяць; -славёны; *зак., каго-што.* **1.** Перахрысціць са словамі малітвы і пажадаць шчасця. *Б. маладых.* **2.** З добрым пажаданнем накіраваць на што-н. *Б. на подзвігі.* ‖ *незак.* **блаславяць**, -яю, -яеш, -яе. ‖ *наз.* **блаславенне**, -я, *н.*

**БЛАТ**, -у, *М* блаце, *м.* (разм.). Знаёмствы, сувязі, якія можна выкарыстаць у асабістых карыслівых інтарэсах. *Купіць па блаце.*

**БЛЕДНАТВАРЫ**, -ая, -ае. З бледным тварам. *Б. хлапчук.*

**БЛЕДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Без натуральнага румянцу, бяскроўны. *Б. твар.* **2.** Афарбаваны ў няяркі колер. *Бледныя фарбы.* **3.** *перан.* Невыразны, бедны. *Бледная мова.* ‖ *наз.* **бледнасць**, -і, *ж.*

**БЛЕФ**, -у, *м.* Выдумка з мэтай увядзення ў зман або запалохвання.

**БЛЕШНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў і блешань, *ж.* Тое, што і *блясна.*

**БЛІЖНІ**, -яя, -яе. **1.** Самы блізкі па адлегласці. *Бліжнія вёскі.* **2.** *у знач. наз.* **бліжні**, -яга, *мн.* -ія, -іх, *м.* Родны чалавек або прыяцель. *Дапамога сваім бліжнім.*

**БЛІЗАРУКІ**, -ая, -ае. **1.** Які дрэнна бачыць на далёкую адлегласць. **2.** *перан.* Недальнабачны. *Блізарукае рашэнне.* ‖ *наз.* **блізарукасць**, -і, *ж.*

**БЛІЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -зіцца; *незак.* Набліжацца, надыходзіць. *Б. жніво.*

**БЛІЗКІ**, -ая, -ае; бліжэйшы; найбліжэйшы. **1.** Які знаходзіцца, адбываецца на невялікай адлегласці. *Б. лес. Жыць блізка* (прысл.). **2.** Які аддзяляецца невялікім прамежкам часу. *Блізкае будучае.* **3.** Які мае кроўныя сувязі; родны. *Б. сваяк. Страціць блізкіх* (наз.). **4.** Звязаны пачуццямі сімпатыі, дружбы, любові. *Блізкія адносіны.* **5.** Падобны. *Блізкія па змесце творы.* **6.** Добра вядомы, дарагі. *Здаецца блізкім той куток, дзе нарадзіўся і вырас.* ‖ *наз.* **блізкасць**, -і, *ж.*

**БЛІЗНЯТЫ**, -нят, *адз.* блізня і блізнё, -няці, *Т* -нём, *н.* Дзеці адной маці, якія нарадзіліся адначасова. *Нарадзіць блізнят. Браты-б.* ‖ *прым.* **блізнячы**, -ая, -ае.

**БЛІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Светлавая пляма або водбліск якога-н. святла на гладкай паверхні, на цёмным фоне.

**БЛІН**, -а, *мн.* -ы, -оў, *м.* Мучны выраб з рэдкага цеста, спечаны на патэльні. *Бліны з макам. Б. не клін: бруха не расколе* (прыказка). ‖ *прым.* **блінны**, -ая, -ае і **бліновы**, -ая, -ае.

**БЛІНДАЖ**, -а, *мн.* -ы, -оў, *м.* Абарончае падземнае збудаванне для ўкрыцця жывой сілы ад агню праціўніка. ‖ *перан.* **бліндажны**, -ая, -ае.

**БЛІННАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Закусачная, у якой бліны з'яўляюцца абавязковай стравай.

**БЛІНЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тонкі блін з пшанічнай мукі, часцей з якой-н. начынкай. *Блінчыкі з мясам.*

**БЛІСК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Успышка святла. *Б. маланкі.* **2.** Хуткі позірк. *Кідаць злосныя бліскі ў чый-небудзь бок.*

**БЛІСКАВІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -віц, *ж.* Тое, што і *маланка* (у 1 знач.). ‖ *прым.* **бліскавічны**, -ая, -ае.

**БЛІСКАЎКА**, -і, *ДМ* -каўцы, *мн.* -і, -кавак, *ж.* **1.** Маленькія бліршчастыя кружочкі для ўпрыгожвання адзення. **2.** Бліскучыя дробныя часцінкі чаго-н., іскры. *Снежныя бліскаўкі.*

**БЛІСКАЦЕЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ціць; *незак.* Іскрыцца, зіхацець. *Бліскаціць вада.*

**БЛІСКУЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які бліскае, зззяе, выпраменьвае святло. *Бліскучыя цацкі.* **2.** *перан.* Выдатны, надзвычайны. *Б. поспех. Б. адказ студэнта.* ‖ *наз.* **бліскучасць**, -і, *ж.*

**БЛІСНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* і *аднакр., чым* і *без дап.* **1.** Ярка засвяціцца, заззяць (пра маланку, сонца, агонь і пад.). *Бліснула маланка.* **2.** Паказацца, заблішчаць (пра яркія прадметы). *Бліснула шабля.* **3.** Зіркнуць (пра імгненны позірк). *Б. вачамі.* **4.** *перан.* Ярка праявіцца. *Б. талентам.* **5.** *перан.* Прамільгнуць. *Бліснула думка.* ‖ *незак.* **бліскаць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—3 знач.). ◊ **Бліскаць вачамі** (разм.) — позіркам выяўляць пачуццё гневу, незадаволенасці і пад. ‖ *наз.* **бліскание**, -я, *н.*

**БЛІЦ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Лямпа для імгненнай моцнай успышкі святла пры фатаграфаванні.

**БЛІЦ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: вельмі хуткі, маланкавы, напр., *бліцтурнір.*

**БЛІШЧАК**, -у, *м.* Ужыв. як частка састаўной назвы некаторых мінералаў. *Жалезны б. Свінцовы б. Сярэбраны б.*

**БЛІШЧАСТЫ**, -ая, -ае. Які мае гладкую, бліскучую паверхню, адбівае прамяні святла. *Блішчастыя гузікі.*

**БЛІШЧАЦЬ**, -шчу, -шчыш, -шчыць; -шчым, -шчыце, -шчаць; -шчы; *незак.* **1.** Свяціцца або адсвечваць роўным святлом. *Боты блішчаць. Возера блішчыць.* **2.** Свяціцца (пра вочы). *Вочы блішчаць ад радасці.*

**БЛОК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прасцейшае прыстасаванне для падняцця грузаў у выглядзе кола з жолабам, цераз якое перакінуты вяроўка, канат або ланцуг. ‖ *прым.* **блочны**, -ая, -ае. *Б. канат.*

**БЛОК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Аб'яднанне дзяржаў, партый, арганізацый, груповак для сумесных дзеянняў. *Палітычны б.*

**БЛОК**[3], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Частка якой-н. пабудовы, машыны і пад., якая сама складаецца з дэталей. *Б. цыліндраў.* **2.** Штучна зроблены з бетоннай сумесі будаўнічы матэрыял у выглядзе вялікай цагліны. *Шлакабетонны б.* **3.** Комплекс будынкаў аднолькавага прызначэння. *Хірургічны б.* ‖ *прым.* **блочны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.). *Блочнае будаўніцтва.*

**БЛУДЗІЦЬ**[1], блуджу, блудзіш, блудзіць; *незак.* Страціўшы арыенціроўку, блукаць па лесе, у незнаёмым месцы ў пошуках выйсця. *Хто пытае, той не блудзіць* (прыказка). ‖ *зак.* **заблудзіць**, -блуджу, -блудзіш, -блудзіць.

**БЛУДЗІЦЬ**[2], блуджу, блудзіш, блудзіць; *незак.* (разм.). Распуснічаць.

**БЛУДЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Распусны. **2.** Шкадлівы, зладзеяваты (разм.). *Блудлівая кошка.*

**БЛУДНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* (уст.). Жанчына лёгкіх паводзін, распусніца.

**БЛУДНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Які ходзіць, блукае, не знаходзячы месца, дому. **2.** Не прамы, звілісты, дзе лёгка заблудзіць. *Блудная дарога.* **3.** *перан.* Не такі, як прынята, не зусім звычайны. ◊ **Блудны сын** — пра легкадумнага, свавольнага чалавека, які раскаяўся ў сваіх памылках.

**БЛУ́ДНЫ**[2], -ая, -ае. Распусны, непрыстойны (разм.). *Блудныя жарты.*

**БЛУ́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, блуз, *ж.* Прасторная верхняя сарочка без пояса. *Рабочая б.*

**БЛУ́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* Жаночая кофтачка з лёгкай тканіны. *Батыставая б.*

**БЛУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Бязмэтна хадзіць, гуляць. *Б. па вуліцы.* **2.** Пераязджаць з месца на месца, хадзіць у пошуках каго-, чаго-н. *Б. па свеце.* **3.** *перан.* Пераходзіць з аднаго прадмета на другі, не спыняючыся на чым-н. (пра погляд, вочы, думкі). *Блукаюць думкі.* ‖ *наз.* **блука́нне**, -я, *н.*

**БЛЫТАНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто дрэнна ў чым-н. разбіраецца, блытае факты.

**БЛЫТАНІ́НА**, -ы, *ж.* Неразбярыха, нешта заблытанае, няяснае, бесталковае. *Б. ў паказаннях сведкі.*

**БЛЫ́ТАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Бязладна пераплецены, заблытаны. *Блытаныя ніткі. Блытаныя сцежкі.* **2.** У якім цяжка разабрацца; нелагічны, супярэчлівы. *Блытаныя думкі.* ‖ *наз.* **блы́танасць**, -і, *ж.*

**БЛЫ́ТАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; -аны; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Бязладна пераплятацца (пра ніткі, валасы, дарогі і пад.). *Ніткі блытаюцца.* **2.** Чапляцца за што-н., заблытвацца. *Ногі блытаюцца ў траве.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Траціць яснасць, дакладнасць (пра думкі, словы і пад.). *Думкі пачалі б.* **4.** Рабіць, гаварыць няясна, недакладна; збівацца. *Б. ў адказе.* **5.** Пераходзіць з месца на месца; блукаць (разм.). *Б. па хатах.* **6.** Падтрымліваць сувязь з людзьмі, паводзіны якіх выклікаюць неадабрэнне (разм.). *Б. з дрэннай кампаніяй.* ‖ *зак.* **заблы́тацца**, -аюся, -аешся, -аецца; -аны (да 1—4 знач.), **зблы́тацца**, -аюся, -аешся, -аецца; -аны (да 1, 3, 4 і 6 знач.), **пераблы́тацца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -аецца (да 1 і 3 знач.) *і* **ублы́тацца**, -аюся, -аешся, -аецца; -аны (да 2 знач.).

**БЛЫ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак.* **1.** *што.* Бязладна пераплятаць (пра ніткі, валасы і пад.). *Б. валасы.* **2.** Гаварыць, расказваць без лагічнай сувязі; памыляцца. **3.** Памылкова прымаць адно за другое. *Б. блізнят.* **4.** Не цвёрда разбірацца ў чым-н. *Б. словы. Б. даты.* **5.** Расстройваць, разладжваць. *Б. планы.* **6.** Наўмысна ўскладняць, рабіць незразумелым. *Б. сляды* (таксама перан.: старацца адвесці падазрэнне). **7.** Умешваць каго-н. у якую-н. непрыемную справу. ‖ *зак.* **заблы́таць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 1, 5 і 6 знач.), **зблы́таць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 1—6 знач.), **пераблы́таць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 1—4 і 6 знач.) *і* **ублы́таць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 7 знач.). ‖ *наз.* **блы́танне**, -я, *н.*

**БЛЫХА́**, -і́, *ДМ* блысе́, *мн.* бло́хі, блох, *ж.* Маленькае паразітычнае бяскрылае насякомае. *Шукаць блох* (таксама перан.: вышукваць нязначныя недахопы ў чым-н.). ‖ *памянш.* **бло́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* ‖ *прым.* **блышы́ны**, -ая, -ае.

**БЛЮ́ДА**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, блюд, *н.* Вялікая талерка круглай або авальнай формы, на якой падаецца да стала смажаніна, печыва і пад. *Фарфоравае б.*

**БЛЮЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Жанр джазавай музыкі, які адлюстроўвае лад і рытмы павольных лірычных песень амерыканскіх неграў, а таксама парны танец у рытме такой музыкі. *Іграць б. Танцавальны б. Музыка ў стылі б.* ‖ *прым.* **блю́завы**, -ая, -ае.

**БЛЮЗНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца блюзнерствам. ‖ *ж.* **блюзне́рка**, -і, *мн.* -і, -рак.

**БЛЮЗНЕ́РСТВА**, -а, *н.* Зневажанне Бога, святых, увогуле ўсяго дарагога, паважанага. ‖ *прым.* **блюзне́рскі**, -ая, -ае. *Блюзнерскія словы.*

**БЛЮ́МІНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Магутны пракатны стан, прызначаны для абцісканя сталёвых зліткаў вялікага папярочнага сячэння. ‖ *прым.* **блю́мінгавы**, -ая, -ае.

**БЛЯ́КЛЫ**, -ая, -ае. Які страціў яркасць афарбоўкі, свежасць. *Б. колер. Бляклая трава.* ‖ *наз.* **бля́класць**, -і, *ж.*

**БЛЯ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *незак.* **1.** Траціць яркасць, свежасць афарбоўкі; рабіцца невыразным. *Блякнуць краскі лета. Блякнуць вочы.* **2.** *перан.* Траціць яркасць, сілу ўздзеяння. *Блякнуць успаміны.* ‖ *зак.* **пабля́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні.

**БЛЯ́МКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Бразгаць чым-н. металічным. *Б. клямкай.* ‖ *зак.* **забля́мкаць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **бля́мкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **бля́мканне**, -я, *н.*

**БЛЯСК**, -у, *м.* **1.** Яркае, асляпляльнае святло; водбліск. *Асляпляльны б. Начысціць боты да бляску. Б. лыжак.* **2.** Святло ў вачах як выражэнне ўнутранага стану. *Б. вачэй.* **3.** *перан.* Пра яркае выяўленне чаго-н. *Б. таленту.* ◊ **З бляскам** (разм.) — вельмі добра, выдатна.

**БЛЯСНА́**, -ы́, *мн.* блёсны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) блясны́, блёсен *і* -нау́, *ж.* Прынада для рыбы ў выглядзе бліскучай металічнай бляшкі.

**БЛЯ́ХА**, -і, *ДМ* бля́се, *мн.* -і, блях, *ж.* **1.** Тонкае ліставое жалеза або асобны ліст такога жалеза. *Накрыць хату бляхай.* **2.** Знак у выглядзе металічнай пласцінкі з надпісам або нумарам, які сведчыць аб службовых абавязках таго, хто яго носіць. *Б. на грудзях.* **3.** Тонкі ліст жалеза з загнутымі краямі, на якім пякуць або смажаць што-н. ‖ *памянш.* **бля́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак (да 2 знач.). ‖ *прым.* **бляша́ны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**БЛЯХА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Майстар, які вырабляе рэчы з бляхі (у 1 знач.) або крые бляхаю дах. ‖ *прым.* **бляха́рны**, -ая, -ае.

**БЛЯША́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Бляшаная пасудзіна звычайна цыліндрычнай формы. *Б. кансерваў.*

**БЛЯ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** *гл.* бляха. **2.** Кавалачак бляхі (у 1 знач.).

**БЛЯЯ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., бляе́; *незак.* Крычаць (пра авечак, коз). ‖ *наз.* **бляя́нне**, -я, *н.*

**БО**. **1.** *злуч. прычынны.* Падпарадкоўвае даданыя сказы з прычынным значэннем; па знач. супадае са злучнікам «таму што». *Хадзем шпарчэй, бо спознімся.* **2.** *злуч. прычынна-супраціўны.* Злучае сказы, якія паказваюць на прычыну неабходнасці дзеяння, па сваім знач. набліжаецца да злучнікаў «а то», «інача́й». *Я закончу, бо расказваць прыйшлося б цэлы дзень.* **3.** *часц.* Ужыв. пасля слова з лагічным націскам і служыць для ўказання на дадзенае слова (разм.). *Праўду бо кажуць: не гані каня дубцом, а гані аўсом.*

**БОБ**[1], -у, *м.* **1.** Аднагадовая агародная расліна сямейства бабовых з авальным насеннем у струках. **2.** Плады гэтай расліны. *Параны б.* ◊ **Бобу ў гаросе шукаць** (разм., неадабр.) — рабіць што-н. недарэчнае, бяссэнсавае. **Пад'есці жалезнага бобу** (разм.) — мець вялікую вытрымку, цярпенне. **Хто ў боб, хто ў гарох** (разм., неадабр.) — пра нязладжаныя, няўзгодненыя дзеянні. ‖ *прым.* **бабо́вы**, -ая, -ае.

**БОБ**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У бабслеі: род саней з рулявым кіраваннем.

**БО́БКА**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* (разм.). **1.** Асобнае зерне чаго-н. *Б. гароху.* **2.** Круглы камячок, шарык. *Бобкі граду.* **3.** Круглая крапінка на матэрыі і інш. *Сукенка ў бобкі.*

**БО́БРЫК**, -у, *м.* Від сукна з кароткім стаячым ворсам. ‖ *прым.* **бо́брыкавы**, -ая, -ае.

**БО́БРЫКАМ**, *прысл.* Пра кароткую мужчынскую стрыжку, пры якой спераду пакідаюцца стаячыя валасы. *Стрыгчыся б.*

**БОГ**, -а, *мн.* багі́, -о́ў, *м.* **1.** Паводле рэлігійных уяўленняў — вярхоўная ўсемагутная істота, якая стварыла свет і кіруе ім. *Старажытнарымскія багі.* **2.** (з вялікай літары). У хрысціянстве: трыадзінае бажаство, творца і ўсеагульны сусветны пачатак — Бог Айцец, Бог Сын і Бог Дух Святы. **3.** *перан.* Выдатны спецыяліст у якой-н. справе. *Б. электразваркі.* ◊ **Божа збаў** (разм.) — ні ў якім разе, ні пры якіх абставінах. **Дай (не дай) бог (божа;** разм.) — пра пажаданні чаго-н. **Крый бог** (разм.) — ужыв. як засцярога ад чаго-н., як забарона рабіць што-н. небяспечнае. **Напрамілы бог** (разм.) — што ёсць сілы, вельмі прасіць аб чым-н. **Няхай бог крые (мілуе, ратуе, бароніць)** (разм.) — ужыв. як пажаданне пазбаўлення ад чаго-н. непрыемнага. **Памагай бог** (разм.) — пажаданне поспеху, удачы ў працы, добрай справе. **Як бог дасць** (разм.) — як прыйдзецца. **Як у бога за пазухай** (разм.) — без асаблівага клопату, пры поўным забеспячэнні. ‖ *прым.* **бо́жы**, -ая, -ае *і* **Бо́жы**, -ая, -ае, **бо́скі**, -ая, -ае і **Бо́скі**, -ая, -ае. *Боскае стварэнне.* ◊ **Божая кароўка** — жучок чырвонай або

жоўтай афарбоўкі з чорнымі кропкамі. **Кожны божы дзень** — штодзённа.

**БОГААДСТУ́ПНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто адмовіўся ад рэлігіі, ад веры ў Бога. ‖ *ж.* **богаадсту́пніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **богаадсту́пніцкі**, -ая, -ае.

**БОГААДСТУ́ПНІЦТВА**, -а, *н.* Адмаўленне ад веры ў Бога.

**БОГАСЛУЖЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Адпраўленне рэлігійных абрадаў у царкве; царкоўная служба. ‖ *прым.* **богаслужэ́бны**, -ая, -ае.

**БО́ДНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* (спец.). Шырокае металічнае вядро для падняцця пароды ў шахтах. ‖ *прым.* **бо́дневы**, -ая, -ае.

**БОЕГАЛО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ло́вак, *ж.* Частка снарада, баявой ракеты, якая ўключае зарад, узрывальнікі, часам сістэму саманавядзення. *Ядзерная б.*

**БОЕГАТО́ЎНАСЦЬ**, -і, *ж.* Гатоўнасць да вядзення баявых дзеянняў.

**БОЕЗАБЕСПЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Забеспячэнне войск узбраеннем і боепрыпасамі.

**БОЕПРЫПА́СЫ**, -аў. Баявыя прыпасы: міны, снарады, патроны, бомбы і пад.

**БО́ЖУХНА**, *м.* (з вялікай літары; разм.). Ужыв. як форма звароту да Бога.

**БОЙ**, бо́ю, *мн.* баі́, баёў, *м.* **1.** *гл.* біць. **2.** Узброенае сутыкненне, бітва. *Наступальны б.* **3.** Барацьба, спартыўнае спаборніцтва. *Кулачны б.* **4.** *перан.* Змаганне з тым, што перашкаджае ў жыцці і працы. *Б. з недахопамі.* **5.** *зб.* Біты посуд, шкло і пад. *Цагляны б.*

**БО́ЙКА**[1], -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, бо́ек, *ж.* Прылада для збівання масла.

**БО́ЙКА**[2], -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, бо́ек, *ж.* Сварка, сутычка з узаемнымі пабоямі.

**БО́ЙКІ**, -ая, -ае. **1.** Рашучы, смелы. *Б. хлопец.* **2.** Скоры, жвавы. *Б. адказ вучня. Бойка* (прысл.) *адказваць на пытанні.* **3.** Поўны руху, ажыўлены. *Б. рынак.* ‖ *наз.* **бо́йкасць**, -і, *ж. Б. характару.*

**БО́ЙЛЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апарат для награвання вады ў сістэмах цеплазабеспячэння. ‖ *прым.* **бо́йлерны**, -ая, -ае. *Бойлерная* (наз.) *на ЦЭЦ.*

**БО́ЙНЯ**, -і, *мн.* -і, бо́ень *і* бо́йняў, *ж.* **1.** Прадпрыемства, дзе забіваюць жывёлу на мяса. **2.** *перан.* Масавае забойства людзей; пабоішча. *Крывавая б.*

**БОК**, бо́ка *і* бо́ку, *М* на баку́, *мн.* бакі́, бако́ў, *м.* **1.** -а. Правая або левая частка цела. *Адлежаць б.* **2.** -у. Напрамак у прасторы, месца. *Пайсці ў розныя бакі. Паўднёвы б. лесу.* **3.** -у. Прастора злева ці справа ад сярэдзіны. *Па другі бок вуліцы.* **4.** -у, *перан.* Становішча па-за галоўнымі падзеямі чаго-н. *З боку лепш відаць.* **5.** -у. Адна з дзвюх паверхняў чаго-н. *Не дакрылі другі б. страхі. Добры б. матэрыі.* **6.** -у, *перан.* Якія-н. рысы, асаблівасці. *Паказаць сябе з лепшага боку.* **7.** -у. Чалавек ці група асоб, якія супрацьстаяць іншаму чалавеку або групе. *Спрэчкі бакоў.* **8.** -у, *перан.* Пункт гледжання, погляд на што-н. *Абмяркоўвалася тэма з усіх бакоў.* **9.** -у. Ступень роднасных адносін. *Дзядзька з боку маці.* ◊ **Бокам вылезці (выйсці)** (разм.) — не прайсці дарэмна для каго-н.; адплаціцца. **Бок у бок** — побач, адзін пры адным (стаяць, размяшчацца і пад.). **Пад (самым) бокам** (разм.) — зусім блізка. ‖ *памянш.* **бачо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **бакавы́**, -а́я, -о́е (да 3 знач.).

**БО́КАМ**, *прысл.* **1.** Плячом уперад. *Праціснуцца б.* **2.** У абход, кружным шляхам (разм.). *Хмара прайшла б.* **3.** Не прама, крыва. *Трымаць б. аловак.* ◊ **То бокам, то скокам** (разм.) — як выпадзе, пераадольваючы цяжкасці.

**БОКС**[1], -а, *м.* Від спорту: кулачны бой у спецыяльных пальчатках паміж двума спартсменамі. *Чэмпіён па боксе.*

**БОКС**[2], -а, *м.* Мужчынская стрыжка, пры якой валасы на скронях і патыліцы коратка выстрыгаюцца або выгольваюцца. *Стрыжка пад б.*

**БОКС**[3], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Ізалятар (у 3 знач.) у лячэбнай установе. ‖ *прым.* **бо́ксавы**, -ая, -ае.

**БО́ЛЕЙ**, *прысл.* Тое, што і *больш.*

**БОЛЬ**, -ю, *мн.* бо́лі, -яў, *м.* Адчуванне фізічнай або маральнай пакуты. *Зубны б. З болем у душы.* ‖ *прым.* **бо́левы**, -ая, -ае. *Болевае адчуванне.*

**БО́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* (разм.). Гнойная або запалёная ранка, язва, струп. *Чужая б. нікому не баліць* (прымаўка).

**БОЛЬШ**, *прысл.* **1.** *Выш. ст.* да прыслоўя многа. *Трэба шмат чытаць, каб б. ведаць.* **2.** З колькаснымі назоўнікамі абазначае перавышэнне ўказанай колькасці. *Б. за гадзіну. Б. за кіламетр.* **3.** У спалучэнні з прыметнікам або прыслоўем служыць для ўтварэння выш. ст. *Б. рашучы хлопец.* **4.** Далей, у далейшым. *Б. не буду.* **5.** Пераважна, галоўным чынам. *Ехаць давялося б. лесам.* ◊ **Ні больш ні менш (як)** (разм.) — роўна столькі.

**БО́ЛЬШАСЦЬ**, -і, *ж.* Большая частка, большая колькасць каго-, чаго-н. *Б. прысутных.*

**БО́ЛЬШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Павялічвацца, прыбаўляцца (у колькасці, велічыні, аб'ёме). ‖ *зак.* **пабо́льшаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны.

**БО́ЛЬШЫ**, -ая, -ае. **1.** *Выш. ст.* да прыметніка вялікі. **2.** Старэйшы па ўзросце, званні і пад. *Большая дачка.* **3.** *у знач. наз.* **бо́льшы**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Дарослы, старэйшы (разм.). *Слухаць большых.*

**БО́МБА**, -ы, *мн.* -ы, бомб *і* -аў, *ж.* Снарад (гарматны, авіяцыйны, ручны), начынены выбуховым рэчывам. *Фугасная б.* ‖ *прым.* **бо́мбавы**, -ая, -ае. *Б. удар.*

**БОМБАКІДА́ННЕ**, -я, *н.* Скіданне бомбаў з самалёта. *Прыцэльнае б.*

**БОМБАТРЫМА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Прыстасаванне для падвешвання бомбаў на самалётах.

**БОМЖ**, бамжа́, *мн.* бамжы́, -о́ў, *м.* Чалавек без пэўнага месцажыхарства і працы.

**БО́МКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Адзывацца звонкім гулам (пра звон, гадзіннік і пад.). *Здалёк чулася, як бомкаў звон.* ‖ *аднакр.* **бо́мкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **бо́мканне**, -я, *н.*

**БО́МЫ**, -аў, *адз.* бо́ма, -ы, *ж.* Званочкі ў выглядзе полых металічных шарыкаў з кавалачкамі металу ўсярэдзіне, якія прымацоўваюцца да хамута ці дугі.

**БО́НДАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Майстар па вырабе драўлянага посуду (бочак, дзежак, цэбраў і пад.). *Гэта вёска славіцца бондарамі.* ‖ *прым.* **бо́ндарскі**, -ая, -ае.

**БО́НДАРСТВА** *гл.* бандарыць.

**БО́НДАРЫХА**, -і, *ДМ* -рысе, *мн.* -і, -рых, *ж.* Жонка бондара.

**БО́ННА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Выхавацелька малых дзяцей (звычайна іншаземка) у багатых сем'ях да рэвалюцыі.

**БО́НЫ**[1], -аў, *адз.* бо́на, -ы, *ж.* (спец.). **1.** Кароткатэрміновыя крэдытныя дакументы, якія даюць права на атрыманне пэўнай сумы ў вызначаны тэрмін. **2.** Папяровыя грашовыя знакі, што выйшлі з ужытку і сталі прадметам калекцыяніравання.

**БО́НЫ**[2], -аў, *адз.* бон, -а, *м.* Плывучая загарода на рэках, азёрах, у марскіх гаванях.

**БОР**[1], -у, *М* у бары́, *мн.* бары́, -о́ў, *м.* Стары сасновы лес. *Векавы б.* ○ **Карабельны бор** — высокі, прыгодны для суднабудавання сасновы бор. ‖ *прым.* **баравы́**, -а́я, -о́е. *Б. край.*

**БОР**[2], -у, *м.* Хімічны элемент, які ўваходзіць у склад многіх мінералаў. ‖ *прым.* **бо́рны**, -ая, -ае. ○ **Борная кіслата** — хімічнае злучэнне, бясколернае крышталічнае рэчыва, якое ўжыв. ў тэхніцы і медыцыне.

**БОР**[3], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Свердзел са стальной, алмазнай або карбарундавай галоўкай, які выкарыстоўваецца ў зубалячэбнай, ювелірнай справе і пад.

**БО́РЗДЫ**, -ая, -ае. Хуткі, жвавы. *Б. конь.* ‖ *наз.* **бо́рздасць**, -і, *ж.*

**БОРМАШЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -шы́н, *ж.* (спец.). Апарат для свідравання ў стаматалогіі, ювелірнай справе і пад.

**БОРТ**, -а, *М* -рце, *мн.* барты́, барто́ў, *м.* **1.** Бакавая сценка марскога або рачнога судна, самалёта. *Кінуць за б. Апынуцца (аказацца) за бортам* (таксама перан.: аказацца выключаным з якой-н. справы). **2.** Сценка кузава грузавога аўтамабіля, адкрытага таварнага вагона і пад. *Барты грузавіка.* **3.** Левы або правы край адзення (паліто, пінжака і пад.) з петлямі або гузікамі для зашпільвання. ‖ *памянш.* **бо́рцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 2 і 3 знач.). ‖ *прым.* **бартавы́**, -а́я, -о́е.

**БОРТ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: хто знаходзіцца на борце самалёта, абслугоўвае самалёт або пасажыраў самалёта, напр.: *бортінжынер, бортправадніца.*

**БОРТЖУРНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Журнал (у 1 знач.), які вядзецца ў час палёту на самалёце, касмічным караблі і інш.

**БЯСКО́НЦЫ**, -ая, -ае. **1.** Бяскрайні, які не мае канца, межаў. *Б. блакіт.* **2.** Надзвычай доўгі, працяглы. *Бясконцыя спрэчкі.* **3.** Надзвычай моцны па сіле праяўлення. *Бясконцая радасць.* || *наз.* **бясконцасць**, -і, *ж.*

**БЯСКО́РМІЦА**, -ы, *ж.* (разм.). Адсутнасць або недахоп корму для жывёлы, птушак. *Вясенняя б.*

**БЯСКРА́ЙНІ**, -яя, -яе. Які нельга акінуць вокам. *Бяскрайнія прасторы.* || *наз.* **бяскра́йнасць**, -і, *ж.*

**БЯСКРО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які змяшчае ў сабе малую колькасць крыві; вельмі бледны. *Бяскроўныя вусны.* **2.** Які адбываецца без кровапраліцця. *Бяскроўная перамога.*

**БЯСКРЫ́ЗІСНЫ**, -ая, -ае. Які не суправаджаецца крызісам. *Бяскрызіснае развіццё.* || *наз.* **бяскры́зіснасць**, -і, *ж.*

**БЯСКРЫ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае крылаў. **2.** *перан.* Пазбаўлены творчай фантазіі, сілы. *Бяскрылыя мары.* || *наз.* **бяскры́ласць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**БЯСКРЫЎ́ДНЫ**, -ая, -ае. Які не робіць крыўды, не прыносіць непрыемнасцей або шкоды. *Бяскрыўдная іронія. Б. звярок.* || *наз.* **бяскрыўднасць**, -і, *ж.*

**БЯСПА́МЯТНЫ**, -ая, -ае. У якога слабая памяць, няпамятлівы. || *наз.* **бяспа́мятнасць**, -і, *ж.*

**БЯСПА́МЯЦТВА**, -а, *н.* **1.** Страта свядомасці, непрытомнасць. *Ляжаць у бяспамяцтве.* **2.** Адсутнасць добрай памяці.

**БЯСПА́ШПАРТНЫ**, -ая, -ае. Які не мае пашпарта.

**БЯСПЕ́КА**, -і, *ДМ* -пе́цы, *ж.* Становішча, пры якім ніхто і нішто не пагражае каму-, чаму-н. *Міжнародная б.*

**БЯСПЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Якому не пагражае небяспека. *Бяспечнае месца. Б. пераход.* **2.** Які не прыносіць шкоды. *Б. сродак.* || *наз.* **бяспе́чнасць**, -і, *ж.*

**БЯСПІ́СЬМЕННЫ**, -ая, -ае. Які не мае сваёй пісьменнасці. *Бяспісьменныя народнасці.*

**БЯСПЛА́НАВЫ**, -ая, -ае. Які робіцца без плана, планавання. || *наз.* **беспла́навасць**, -і, *ж.*

**БЯСПЛА́ТНЫ**, -ая, -ае. Без аплаты. *Бясплатная медыцынская дапамога.* || *наз.* **бяспла́тнасць**, -і, *ж.*

**БЯСПЛЁННЫ**, -ая, -ае. Які не дае ніякіх вынікаў; марны. *Бясплённая дзейнасць.* || *наз.* **бясплённасць**, -і, *ж.*

**БЯСПЛО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Няздольны даваць патомства. **2.** Неўрадлівы. *Бясплодная глеба.* **3.** *перан.* Які не дае ніякіх вынікаў. *Бясплодныя спробы.* || *наз.* **бяспло́днасць**, -і, *ж.*

**БЯСПО́ЛЫ**, -ая, -ае. Які не мае адзнак полу. *Бясполая істота.* ○ **Бясполае размнажэнне** — форма размнажэння, пры якой арганізм узнаўляе сябе самастойна, без усялякага ўдзелу іншай асобіны.

**БЯСПО́ШЛІННЫ**, -ая, -ае. Свабодны ад абкладання пошлінай. *Б. ўвоз тавараў* || *наз.* **бяспо́шліннасць**, -і, *ж.*

**БЯСПРА́ЎЕ**, -я, *н.* Адсутнасць правоў або немагчымасць іх рэалізаваць.

**БЯСПРА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які пазбаўлены палітычных, грамадзянскіх правоў або не можа іх рэалізаваць. || *наз.* **бяспра́ўнасць**, -і, *ж.*

**БЯСПРО́ЙГРЫШНЫ**, -ая, -ае. З абавязковым выйгрышам. *Бяспройгрышная латарэя.* || *наз.* **бяспро́йгрышнасць**, -і, *ж.*

**БЯСПРЫ́КЛАДНЫ**, -ая, -ае. Які не мае сабе роўнага; выключны. *Б. подзвіг.* || *наз.* **бяспры́кладнасць**, -і, *ж.*

**БЯССІ́ЛЛЕ**, -я, *н.* **1.** Недахоп, адсутнасць фізічных сіл, крайняя слабасць. **2.** Няздольнасць зрабіць што-н., адсутнасць магчымасці дзейнічаць. *Пераканацца ў сваім бяссіллі.*

**БЯССІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае фізічных сіл, слабы. *Б. хворы.* **2.** Няздольны што-н. зрабіць; бездапаможны. *Медыцына тут бяссільная дапамагчы.*

**БЯССЛА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які заслугоўвае асуджэння, ганебны. *Б. канец. Бясслаўнае адступленне.* || *наз.* **бяссла́ўнасць**, -і, *ж.*

**БЯССЛЕ́ДНЫ**, -ая, -ае. Які не пакінуў пасля сябе ніякіх слядоў. *Бясследнае знікненне. Прапасці бясследна* (прысл.). || *наз.* **бяссле́днасць**, -і, *ж.*

**БЯССЛО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Выказаны без слоў. *Б. дакор.* **2.** Маўклівы, які лічыць за лепшае не выказваць сваіх думак. *Б. выканаўца.* || *наз.* **бяссло́ўнасць**, -і, *ж.*

**БЯССМЕ́РТНІК**, -у, *м.* Назва некаторых травяністых раслін з сухімі кветкамі, якія не вянуць.

**БЯССНЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Скупы на снег. *Бясснежная зіма.* || *наз.* **бяссне́жнасць**, -і, *ж.*

**БЯССО́ННІЦА**, -ы, *ж.* Нездаровая адсутнасць сну або парушэнне сну. *Мучыцца бяссонніцай.*

**БЯССО́ННЫ**, -ая, -ае. Праведзены без сну. *Бяссонная ноч.*

**БЯССПРЭ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які не выклікае пярэчанняў. *Бясспрэчныя довады.* || *наз.* **бясспрэ́чнасць**, -і, *ж.*

**БЯССТРА́СНЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены страсці, халодны і спакойны. *Б. характар.* || *наз.* **бясстра́снасць**, -і, *ж.*

**БЯССТРА́ТНЫ**, -ая, -ае. Які не прыносіць страты. *Бясстратнае прадпрыемства.* || *наз.* **бясстра́тнасць**, -і, *ж.*

**БЯССТРА́ШНЫ**, -ая, -ае. Які не ведае страху; адважны. *Б. партызан.* || *наз.* **бясстра́шнасць**, -і, *ж.*

**БЯССЭ́НСАВЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены сэнсу. *Б. набор слоў. Б. ўчынак. Б. позірк.* || *наз.* **бяссэ́нсавасць**, -і, *ж.*

**БЯССЭ́НСІЦА**, -ы, *ж.* (разм.). Тое, што не мае сэнсу; бязглуздзіца, недарэчнасць. *Вярзці бяссэнсіцу.*

**БЯССЭ́НСНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *бяссэнсавы.* || *наз.* **бяссэ́нснасць**, -і, *ж.*

**БЯСТА́КТНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* бястактны. **2.** Бястактныя паводзіны, бястактныя ўчынкі.

**БЯСТА́КТНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *бестактоўны.* || *наз.* **бяста́ктнасць**, -і, *ж.*

**БЯСТА́ЛЕНТНЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены таленту. *Б. паэт.*

**БЯСФО́РМЕННЫ**, -ая, -ае. Які не мае выразна акрэсленай формы. *Бясформенная маса.* || *наз.* **бясфо́рменнасць**, -і, *ж.*

**БЯСХІ́БНЫ**, -ая, -ае. Які не мае хібаў, недахопаў; беспамылковы. *Б. разлік.* || *наз.* **бясхі́бнасць**, -і, *ж.*

**БЯСХЛЕ́БІЦА**, -ы, *ж.* (разм.). Адсутнасць або недахоп хлеба. *Пераажылі бясхлебіцу.*

**БЯСХЛЕ́БНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з адсутнасцю хлеба. *Б. год.*

**БЯСХМА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Без хмар, ясны. *Бясхмарнае неба.* **2.** *перан.* Нічым не азмрочаны, шчаслівы. *Бясхмарнае жыццё.* || *наз.* **бясхма́рнасць**, -і, *ж.*

**БЯСЦЕ́НЕВЫ**, -ая, -ае. Які не ўтварае ценю. *Бясценевая лямпа.*

**БЯСЦЭ́НАК**, -нку, *м.* У выразе: **за бясцэнак** (разм.) — вельмі танна. *Купіць за б.*

**БЯСЦЭ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Вельмі каштоўны, дарагі. *Б. скарб.* **2.** *перан.* Дарагі, любы. *Б. друг.* || *наз.* **бясцэ́ннасць**, -і, *ж.*

**БЯСЧЫ́НСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Грубае парушэнне грамадскага парадку, скандальныя паводзіны. *Тварыць бясчынствы.*

**БЯСЧЫ́НСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* Сваволіць, буяніць, парушаць парадак.

**БЯСШКО́ДНЫ**, -ая, -ае. Які не робіць шкоды. *Бясшкоднае лякарства.* || *наз.* **бясшко́днасць**, -і, *ж.*

**БЯСШЛЮ́БНЫ**, -ая, -ае. Без шлюбу або па-за шлюбам (жыццё, быт, існаванне). *Бясшлюбнае жыццё.* || *наз.* **бясшлю́бнасць**, -і, *ж.*

**БЯСШУ́МНЫ**, -ая, -ае. Які не робіць шуму, ціхі. *Б. матор. Бясшумныя крокі.* || *наз.* **бясшу́мнасць**, -і, *ж.*

**БЯСШЭ́РСНЫ**, -ая, -ае. Які не мае шэрсці.

# В

**ВА**, *прыназ. з РВМ.* Ужыв. замест прыназ. «у» перад словамі, што пачынаюцца з «у» і ў спалучэнні «ва мне», напр.: *ва ўніверсітэце, ва ўзросце, ва ўсіх.*

**ВА́БА**, -ы, *ж.* Прывабліванне (птушак, звяроў) падробленым голасам (гукам).

**ВА́БІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Дудачка, свісток і інш. прылады паляўнічых, пры дапамозе якіх у час палявання падзываюць птушак або звяроў, падрабляючы іх голас.

**ВА́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; *незак., каго.* **1.** Захапляючы, зачароўваючы сваім выглядам, прыцягваць да сябе. *Поўдзень вабіць сваёй прыродай.* **2.** Падзываць птушак, звяроў, падрабляючы іх голас. *В. свістам птушак.* ‖ *зак.* **пава́біць**, -блю, -біш, -біць.

**ВА́БНЫ**, -ая, -ае. Які вабіць, зачароўвае сваім выглядам; прывабны. ‖ *наз.* **ва́бнасць**, -і, *ж.*

**ВАВЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Звярок роду млекакормячых атрада грызуноў з пушыстым хвастом, а таксама футра гэтага звярка. ‖ *прым.* **вавёркавы**, -ая, -ае. *Вавёркавае футра.*

**ВАВІЛО́НСКІ** *гл.* стоўпатварэнне.

**ВА́ГА**, -і, *ДМ* ва́зе, *мн.* -і, -аў, *ж.* Тоўстая жэрдка або бервяно для падважвання цяжкіх прадметаў.

**ВАГА́**, -і́, *ДМ* ваз́е, *мн.* ва́гі *і (з ліч. 2, 3, 4)* вагі́, ва́гаў, *ж.* **1.** толькі *адз.* Цяжар каго-, чаго-н., які вызначаецца ўзважваннем. *Вызначыць вагу тавару. Вагой у дваццаць кілаграмаў. Меры вагі. Барэц цяжкай вагі.* **2.** толькі *адз., перан.* Уплыў, аўтарытэт, значэнне. *Мець вагу ў калектыве.* **3.** Прылада для ўзважвання чаго-н. *Аўтаматычныя вагі.* ◊ **На вагу золата** — вельмі дорага. ‖ *прым.* **вагавы́**, -а́я, -о́е (да 1 і 3 знач.). *Вагавыя катэгорыі барцоў. В. збор.*

**ВАГАНЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Невялікі адкрыты вагон для перавозкі грузаў па вузкакалейных або падвесных дарогах.

**ВАГА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Рычаг для рэгулявання чаго-н. або кіравання чым-н.

**ВАГАЎШЧЫ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто займаецца ўзважваннем чаго-н. *Чыгуначны в.* ‖ *ж.* **вагаўшчы́ца**, -ы, *мн.* -ы, -чы́ц. ‖ *прым.* **вагаўшчы́цкі**, -ая, -ае.

**ВАГА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Мерна гайдацца з боку ў бок або зверху ўніз. *Маятнік вагаецца.* **2.** *перан.* Быць у нерашучасці, адчуваць няўпэўненасць, сумнявацца. *В. ў ацэнцы рамана.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Быць няўстойлівым, хісткім, мяняцца. *Тэмпература паветра вагаецца ад 13 да 18°.* ‖ *зак.* **пава́гацца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **ва́ганне**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.; прым.* **ва́гальны**, -ая, -ае (у 1 знач.). *Вагальны рух.*

**ВАГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што.* Мерна разгойдваць што-н. зверху ўніз або з боку ў бок. *В. рычаг.* ‖ *зак.* **пава́га́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны.

**ВАГО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Транспартны сродак для перавозкі пасажыраў або грузаў па рэйкавых дарогах. *Таварны в. Пасажырскі в. Трамвайны в. В.-лядпік. В.-рэстаран. В. дроў* (колькасць, якая змяшчаецца ў ім). ‖ *памянш.* **ваго́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **ваго́нны**, -ая, -ае.

**ВАГРА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Шахтавая печ для плаўкі чыгуну, а таксама для апалу руд каляровых металаў. ‖ *прым.* **вагра́начны**, -ая, -ае *і* **вагра́нкавы**, -ая, -ае.

**ВАДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *мн.* во́ды, вод *і* -аў, *ж.* **1.** Празрыстая бясколерная вадкасць, якая ўяўляе сабой хімічнае злучэнне вадароду і кіслароду. *Шклянка вады. Марская в.* **2.** (звычайна з азначэннем). Напітак, тэхнічныя растворы. *Газіраваная в. Мінеральная в. Вапнавая в.* **3.** Водная паверхня ракі, возера, мора і пад., а таксама яе ўзровень. *Падарожнічаць па вадзе. Высокая в. Дастаўляць грузы вадой.* **4.** *мн.* Водная прастора якога-н. раёна. *Тэрытарыяльныя воды. Унутраныя воды.* **5.** *мн.* Плынь, хвалі, водная маса. *Глыбокія воды. Воды Нёмана.* **6.** *мн.* Мінеральныя крыніцы, курорт з такімі крыніцамі. *Лячыцца на водах. Мінеральныя воды.* **7.** *перан., адз.* Пра наяўнасць пустога, беззмястоўнага шматслоўя ў дакладзе, лекцыі і пад. (разм.). *Не даклад, а в.* ○ **Верхавая вада** — вада, якая сцякла ў рэчку пасля дажджу ці ўтварылася з расталага снегу. **Жоўтая вада** — хвароба вачэй, пры якой зрэнка набывае жоўты колер. **Цёмная вада** — слепата, выкліканая атрафіяй зрокавага нерва. ◊ **Таўчы ваду ў ступе** або **насіць ваду ў рэшаце** (разм.) — займацца пустымі справамі, марнай працай. **Вадой не разліць (не разальеш)** *каго* — пра неразлучных сяброў. **Як у ваду глядзеў** — быццам загадзя ведаў. **Вады (нікому) не замуціць** — не зрабіць шкоды. **Выйсці сухім з вады** — застацца непакараным. **Віламі па вадзе пісана** — пра што-н. маламагчымае, няпэўнае. **Ліць ваду на млын** *чый, каго* — прыводзіць доказ або дзейнічаць на чыю-н. карысць. **Вывесці на чыстую ваду** *каго-н.* — выкрыць чые-н. нядобрыя ўчынкі). **Цішэй вады, ніжэй травы** — пра сціплага, вельмі спакойнага, ціхага чалавека. ‖ *памянш.-ласк.* **вадзі́ца**, -ы, *ж.* (да 1 знач.; разм.) *і* **вадзі́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* (да 1 знач.; разм.). ‖ *прым.* **во́дны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.) *і* **вадзяны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.). *Водны шлях. Водны раствор. Водны спорт. Вадзяная пара. Вадзяны павук. Вадзяны млын.*

**ВАДА...** (*гл.* **вода...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «вода...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *вадавоз, вадаплаўны, вадалаз.*

**ВАДАБО́ЯЗЬ**, -і, *ж.* Тое, што і *шаленства* (у 1 знач.).

**ВАДАВО́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто возіць ваду.

**ВАДАВО́ЗНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для перавозкі вады. *Вадавозная бочка.*

**ВАДАГРЭ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для награвання вады. *В. кацёл.*

**ВАДАЁМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Натуральная або штучная ўпадзіна, напоўненая вадой; басейн. *Натуральны в.* ‖ *прым.* **вадаёмны**, -ая, -ае.

**ВАДАЗЛІ́Ў**, -лі́ва, *мн.* -лі́вы, -лі́ваў, *м.* (спец.). Адтуліна ў верхняй частцы плаціны для сцёку лішняй вады. ‖ *прым.* **вадазлі́ўны**, -ая, -ае.

**ВАДАКА́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Спецыяльнае збудаванне з помпамі для падачы вады.

**ВАДАЛА́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст, які займаецца падводнымі работамі ў спецыяльным воданепранікальным касцюме. ‖ *прым.* **вадала́зны**, -ая, -ае. *Вадалазныя работы.*

**ВАДАЛІ́Ў**, -лі́ва, *мн.* -лі́вы, -лі́ваў, *м.* **1.** Рабочы, які вылівае або адпампоўвае ваду. **2.** Старшы рабочы на баржы.

**ВАДАМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прылада для вымярэння расходу вады. **2.** Вымяральная рэйка для назірання за ўзроўнем вады. ‖ *прым.* **вадаме́рны**, -ая, -ае.

**ВАДАНО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто носіць ваду.

**ВАДАНО́СНЫ**, -ая, -ае. Які ўтрымлівае ў сабе ваду. *В. пласт.*

**ВАДАПЛА́ЎНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **вадаплаўныя птушкі** — агульная назва птушак, якія жывуць на вадзе.

**ВАДАПО́Й**, -о́ю, *м.* **1.** Месца на рацэ, возеры і інш., дзе пояць жывёлу і куды прыходзяць піць звяры. **2.** Паенне жывёлы вадой. ‖ *прым.* **вадапо́йны**, -ая, -ае.

**ВАДАРО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Хімічны элемент, самы лёгкі газ, які ў злучэнні з кіслародам утварае ваду. ‖ *прым.* **вадаро́дны**, -ая, -ае. *Вадародная бомба* (разнавіднасць атамнай бомбы).

**ВАДАСКІ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гідратэхнічнае збудаванне для спуску лішняй вады з вадасховішчаў. *Запасны в.* ‖ *прым.* **вадаскі́дны**, -ая, -ае.

**ВАДАСПА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Імклівы паток вады, што спадае са стромага ўступа ў рэчышча ракі. *Горны в.* ‖ *прым.* **вадаспа́дны**, -ая, -ае.

**ВАДАСПУ́СК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Труба ў плацінах і вадасховішчах для спуску вады. ‖ *прым.* **вадаспу́скны**, -ая, -ае.

**ВАДАСХО́ВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *н.* Штучны вадаём для збору і захавання вады. ‖ *прым.* **вадасхо́вішчны**, -ая, -ае.

**ВАДАСЦЁК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Збудаванне для адводу, сцёку вады, а таксама па-

катае месца, па якім сцякае вада. ‖ *прым.* **вадасцёкавы**, -ая, -ае. *Вадасцёкавая труба.*

**ВАДАТРУ́БНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **вадатрубны кацёл** — паравы кацёл, у якім вада награваецца, праходзячы па трубах.

**ВАДЗІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Тое, што і *кіроўца*. *В. тралейбуса. В. таксі.* ‖ *прым.* **вадзі́цельскі**, -ая, -ае. *Вадзіцельскія правы.*

**ВАДЗІ́ЦЦА**, ваджу́ся, во́дзішся, во́дзіцца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Быць, жыць (пра жывёл, птушак і пад.); быць у наяўнасці. *Там водзяцца бабры. Гэткае дабро ў нас даўно не водзіцца.* **2.** *безас.* Быць звычаем, правілам. *Як водзіцца ў нас.* **3.** *з кім.* Мець справу, сябраваць (разм.). *Не вадзіся больш з гэтым хлопчыкам.*

**ВАДЗІ́ЦЬ**, ваджу́, во́дзіш, во́дзіць; *незак.* **1.** Тое, што і *весці* ў 1, 2 і 4 знач. (але абазначае дзеянне, што адбываецца не ў адзін час, не за адзін прыём або не ў адным напрамку). *В. дзяцей гуляць. В. войскі ў бой. В. смыкам па струнах. В. машыну.* **2.** *што з кім.* Падтрымліваць (знаёмства, дружбу). **3.** пераважна *безас., каго-што.* Хістаць у бакі, заносіць пры хадзьбе, яздзе. *Машыну пачало в. па слізкай дарозе.* **4.** Кіраваць гульнямі, танцамі. ‖ *наз.* **ваджэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ВАДЗЯНІ́СТЫ**, -ая, -ае. Які ўтрымлівае многа лішняй вады, вільгаці. *Вадзяністае чарніла.* ‖ *наз.* **вадзяні́стасць**, -і, *ж.*

**ВАДЗЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Хвароба, пры якой у тканках і поласцях цела збіраецца вадкасць. **2.** Запоўнены вадкасцю пухір (разм.). ‖ *прым.* **вадзя́начны**, -ая, -ае.

**ВАДЗЯНЫ́** *гл.* вада.

**ВА́ДКАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* вадкі. **2.** Рэчыва, якое мае ўласцівасць цячы і набываць форму той пасудзіны, у якой яно знаходзіцца. ‖ *прым.* **ва́дкасны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.).

**ВА́ДКІ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ў стане вадкасці, здольны цячы. *Вадкія рэчывы* (у адрозненне ад цвёрдых і газападобных). *Вадкае паліва.* ‖ *наз.* **ва́дкасць**, -і, *ж.*

**ВАДНАЛЫ́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца ваднальжным спортам. *Спаборніцтвы ваднальжнікаў.* ‖ *ж.* **ваднаы́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ВАДНАЛЫ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да водных лыж. *В. спорт.*

**ВАДЫ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Пухір, які ўсхопліваецца пры апёку скуры.

**ВАДЭВІ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Кароткая камічная п'еса, у якой дыялогі чаргуюцца з песнямі. ‖ *прым.* **вадэві́льны**, -ая, -ае.

**ВАЕН...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач. ваенны, напр.: *ваенкар, ваентэхнік, ваенурач.*

**ВАЕНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* **1.** Прыстасаваць (прыстасоўваць) да ваенных умоў, перавесці (пераводзіць) на абслугоўванне ваенных патрэб. *В. прамысловасць.* **2.** Узброіць (узбройваць); арганізаваць (арганізоўваць) на ваенны лад. ‖ *наз.* **ваеніза́цыя**, -і, *ж.*

**ВАЕНКА́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ваенны камісар. ‖ *прым.* **ваенка́маўскі**, -ая, -ае.

**ВАЕНКАМА́Т**, -а, *М* -ма́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ваенны камісарыят. *Раённы в.* ‖ *прым.* **ваенкама́цкі**, -ая, -ае.

**ВАЕННА...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач. ваенны; пішацца разам у словах: *ваеннаабавязаны, ваеннапалонны, ваеннаслужачы.*

**ВАЕННА-...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач. ваенны, які мае адносіны да абслугоўвання ўзброеных сіл, да вядзення вайны, напр.: *ваенна-паветраны, ваенна-прамысловы, ваенна-інжынерны.*

**ВАЕННААБАВЯ́ЗАНЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Асоба, якая павінна несці вайсковую службу (падлягае прызыву або знаходзіцца ў запасе). ‖ *ж.* **ваеннаабавя́заная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых.

**ВАЕННАПАЛО́ННЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Ваеннаслужачы, узяты ў палон.

**ВАЕ́ННА-ПАЛЯВЫ́**, -а́я, -о́е. Ваенны (у 2 знач.), які ажыццяўляецца, дзейнічае ва ўмовах ваеннага часу. *Ваенна-палявы суд. Ваенна-палявая хірургія.*

**ВАЕ́ННА-ПРАМЫСЛО́ВЫ**, -ая, -ае. У выразе: **ваенна-прамысловы комплекс** — аб'яднанне манаполій, прадпрыемстваў, што выпрацоўваюць ваенную прадукцыю, а таксама аб'яднанне прадстаўнікоў узброеных сіл і часткі дзяржаўна-адміністрацыйнага апарату, якое ставіць сваёй мэтай гонку ўзбраенняў.

**ВАЕННАСЛУ́ЖАЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Асоба, якая знаходзіцца на вайсковай службе ў кадравай арміі. ‖ *ж.* **ваеннаслу́жачая**, -ай, *мн.* -ыя, -ых.

**ВАЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* вайна. **2.** Які мае адносіны да абслугоўвання арміі і патрэб вайны. *Ваенная прамысловасць. Ваеннае становішча. На в. лад.* **3.** *у знач. наз.* **вае́нны**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Тое, што і *ваеннаслужачы.*

**ВАЕ́НШЧЫНА**, -ы, *ж., зб.* (пагард.). Агрэсіўныя ваенныя колы.

**ВАЖА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Павадыр статка, чарады. **2.** Кіраўнік, арганізатар. *В. моладзі.*

**ВАЖА́ТЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* **1.** Праваднік, які паказвае шлях тым, хто за ім ідзе. **2.** Кіраўнік піянерскага атрада, дружыны. ‖ *ж.* **важа́тая**, -ай, *мн.* -ыя, -ых. ‖ *прым.* **важа́цкі**, -ая, -ае (да 2 знач.; разм.).

**ВАЖДАНІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Занятак, які патрабуе многа часу, увагі, турбот.

**ВАЖДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* (разм.). Доўга займацца якой-н. справай; корпацца. *В. з паперамі. Хопіць в. з гэтым гультаём!*

**ВА́ЖКІ**, -ая, -ае. **1.** Які мае значную вагу пры невялікім аб'ёме. *В. тавар.* **2.** *перан.* Пераканаўчы. *В. доказ. Важка* (прысл.) *гаварыць.* **3.** *перан.* Пазбаўлены лёгкасці; цяжкі. *Важкія крокі.* ‖ *наз.* **ва́жкасць**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ВА́ЖНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* важны. **2.** Велічнасць, фанабэрыстасць. *Напусціць на сябе в.* ◊ **(Не) вялікая важнасць** (разм.) — нічога асаблівага.

**ВАЖНЕ́ЦКІ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Вельмі добры, выдатны. *Важнецкія работы.* **2.** Велічны, фанабэрысты. *В. выгляд.*

**ВА́ЖНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Прымаць паважны выгляд, фанабэрыцца. ‖ *наз.* **ва́жнічанне**, -я, *н.*

**ВА́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае вялікае значэнне, значны. *Важная справа. Важная галіна народной гаспадаркі.* **2.** Высокі па пасадзе, становішчы (разм.). *В. начальнік. Важная персона.* **3.** Велічны, паважны, фанабэрысты. *В. выгляд. Важна* (прысл.) *трымацца сябе.* ‖ *наз.* **ва́жнасць**, -і, *ж.* (да 1 і 3 знач.).

**ВА́ЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *незак.* **1.** Вызначаць сваю вагу шляхам узважвання. **2.** Праяўляць жаданне, намервацца зрабіць што-н. (разм.). *В. ўдарыць кіем.*

**ВА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; *незак.* **1.** *каго-што.* Вызначаць вагу, узважваць. *В. збожжа.* **2.** Мець пэўную вагу (у 1 знач.). *Рыбіна важыць два кілаграмы.* ‖ *наз.* **ва́жанне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ВА́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, ваз, *ж.* Пасудзіна для кветак, садавіны і пад. або проста дэкаратыўнага прызначэння. *Хрустальная в.* ‖ *памянш.* **ва́зачка**, -і, *ДМ* -чцы, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **ва́завы**, -ая, -ае (спец.).

**ВАЗАВЫ́** *гл.* воз.

**ВАЗА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто перавозіць грузы на конях. ‖ *прым.* **ваза́цкі**, -ая, -ае.

**ВАЗЕЛІ́Н**, -у, *м.* Мазь, якую атрымліваюць з нафты (ужыв. ў медыцыне, касметыцы, тэхніцы). *Борны в.* ‖ *прым.* **вазелі́навы**, -ая, -ае.

**ВАЗІ́ЦЦА**, важу́ся, во́зішся, во́зіцца; *незак.* **1.** Катацца. *В. на санках.* **2.** *перан., з кім-чым.* Аддаваць многа часу якой-н. справе; важдацца (разм.). *В. са справаздачай.*

**ВАЗІ́ЦЬ**, важу́, во́зіш, во́зіць; *незак., каго-што.* **1.** Тое, што і *везці*[1] (але абазначае дзеянне, якое адбываецца не ў адзін час, не за адзін прыём або не ў адным напрамку). *В. дровы з лесу.* **2.** Катаць. *В. дзіця ў калясачцы.* ‖ *наз.* **во́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.*

**ВАЗО́К**, -зка́, *мн.* -зкі́, -зко́ў, *м.* **1.** *Памянш.* да воз (у 1 і 2 знач.). **2.** Лёгкія, спецыяльна абсталяваныя для выезду сані.

**ВАЗО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дэкаратыўная пакаёвая расліна. **2.** Гаршчок для вырошчвання такіх раслін. ‖ *прым.* **вазо́нны**, -ая, -ае.

**ВАЗО́ЎНЯ**, -і, *мн.* -і, вазо́вень *і* -яў, *ж.* Спецыяльнае памяшканне для захоўвання вазоў (у 1 знач.). ‖ *прым.* **вазо́ўневы**, -ая, -ае.

**ВАЙНА́**, -ы́, *мн.* во́йны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) вайны́, во́йнаў, *ж.* **1.** Узброеная барацьба

паміж дзяржавамі, народамі і пад. *Першая сусветная в. Вялікая Айчынная в. Халодная в. Знаходзіцца ў стане вайны з кім-н. Пайсці на вайну. В. нерваў* (перан.). **2.** *перан.* Пра стан варожасці, барацьбу з кім-, чым-н. *Эканамічная в. Аб'явіць вайну бракаробам.* ‖ *прым.* **ваенны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ВАЙСКОВЕЦ**, -коўца, *мн.* -коўцы, -коўцаў, *м.* (разм.). Асоба, якая знаходзіцца на ваеннай службе; ваеннаслужачы.

**ВАЙСКОВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* войска. **2.** Ваенны (у 2 знач.). *Вайсковая служба. Вайсковая выпраўка. В. чалавек.*

**ВАКАЛІСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст у галіне вакальнага мастацтва, а таксама па пастаноўцы голасу спевака. **2.** Спявак-прафесіянал. ‖ *ж.* **вакалістка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ВАКАЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да спеваў, прызначаны для выканання голасам. *Вакальная музыка. Вакальнае мастацтва.*

**ВАКАМЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Здольнасць вызначаць адлегласць на вока, без прыбораў. *Мець добры в.* ‖ *прым.* **вакамерны**, -ая, -ае. *Вакамерная здымка.*

**ВАКАНСІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* Вакантная пасада, месца. *Адкрылася в.*

**ВАКАНТНЫ**, -ая, -ае. Пра пасаду, службовае месца: свабодны, нікім не заняты. *Вакантная пасада прафесара.* ‖ *наз.* **вакантнасць**, -і, *ж.*

**ВАКАЦЫІ**, -цый. Канікулы. ‖ *прым.* **вакацыйны**, -ая, -ае.

**ВАКЗАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Будынак на чыгуначнай станцыі, прыстані і пад. *Чыгуначны в. Рачны в.* ‖ *прым.* **вакзальны**, -ая, -ае.

**ВАКОЛ**. **1.** *прысл.* Кругом, навокал. *В. нікога не было.* **2.** *прыназ. з Р.* Кругом чаго-н. *Хадзіць в. саду.*

**ВАКОЛІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ліц, *ж.* **1.** Ускраіна населенага пункта. *Выйсці за ваколіцу.* **2.** Тое, што размешчана вакол населенага пункта; наваколле. *Пайшла пагаласка па ўсёй ваколіцы.* ‖ *прым.* **ваколічны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ВАКОЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Размешчаны вакол. *Вакольныя нівы.* **2.** Які ляжыць у баку ад самага кароткага шляху. *Вакольная дарога.*

**ВАКСА**, -ы, *ж.* Мазь для чысткі скуранога абутку. ‖ *прым.* **ваксавы**, -ая, -ае *і* **ваксенны**, -ая, -ае.

**ВАКСАВАЦЬ**, -сую, -суеш, -суе; -суй; -саваны; *незак., што.* Мазаць, чысціць скураны абутак ваксай. *В. боты.* ‖ *зак.* **наваксаваць**, -сую, -суеш, -суе; -суй; -саваны.

**ВАКУУМ**, -у, *м.* (спец.). **1.** Стан вельмі разрэджанага газу пры нізкім ціску. **2.** *перан.* Поўная адсутнасць, востры недахоп чаго-н. *Духоўны в.* ‖ *прым.* **вакуумны**, -ая, -ае.

**ВАКХАНАЛІЯ**, -і, *ж.* **1.** звычайна *мн.* У антычным свеце: свята ў гонар бога віна і весялосці Вакха. **2.** *перан.* Крайняя ступень беспарадку, разгульнага балявання. ‖ *прым.* **вакханальны**, -ая, -ае.

**ВАКХАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* У антычным свеце: жрыца бога віна і весялосці Вакха, удзельніца вакханалій.

**ВАКЦЫНА**, -ы, *ж.* (спец.). Прэпарат для папераджальных лячэбных прышчэпак супраць заразных хвароб. ‖ *прым.* **вакцынавы**, -ая, -ае.

**ВАЛ**[1], -а, *мн.* валы, -оў, *м.* **1.** Доўгі высокі земляны насып. *Крапасны в.* **2.** Высокая хваля. *Дзявяты в.* (самая моцная і небяспечная хваля ў час марской буры, паводле старадаўніх уяўленняў — пагібельная для мараплаўцаў). *Агнявы в.* (перан.: пра вельмі моцны артылерыйскі абстрэл пазіцый, які паслядоўна перамяшчаецца). ‖ *прым.* **вальны**, -ая, -ае (спец.).

**ВАЛ**[2], -а, *мн.* валы, -оў, *м.* У механізмах: стрыжань, які круціцца на апорах і перадае рух іншым часткам механізма. *В. турбіны.* ‖ *памянш.* **валік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **вальны**, -ая, -ае (спец.).

**ВАЛ**[3], -а, толькі *адз., м.* У эканоміцы: агульны аб'ём прадукцыі ў вартасным выражэнні, выпушчанай за які-н. пэўны перыяд. *Выканаць план па вале.* ‖ *прым.* **валавы**, -ая, -ое. *В. даход.*

**ВАЛАВОДЗІЦЦА**, -воджуся, -водзішся, -водзіцца; *незак.* (разм.). Аддаваць залішне многа ўвагі і часу каму-, чаму-н.; няньчыцца. *Няма часу з табой в.*

**ВАЛАВОДЗІЦЬ**, -воджу, -водзіш, -водзіць; *незак.* (разм.). Наўмысна зацягваць вырашэнне якой-н. справы; валакіціць.

**ВАЛАВОДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто валаводзіць, зацягвае вырашэнне якой-н. справы. *Не слухайце вы гэтага валаводніка.*

**ВАЛАВОКІ**, -ая, -ае. З вялікімі спакойнымі вачамі. *Валавокая прыгажуня.*

**ВАЛАВЫ** *гл.* вал[3].

**ВАЛАКІТА**, -ы, *ДМ* -кіце, *ж.* Бюракратычная зацяжка пры вырашэнні якой-н. справы. ‖ *прым.* **валакітны**, -ая, -ае. *Валакітная справа.*

**ВАЛАКІТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто стварае валакіту. ‖ *ж.* **валакітчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ВАЛАКНІСТЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з валокнаў, з валокнамі. *Валакністая будова раслліннай тканкі. Валакністыя матэрыялы.* ‖ *наз.* **валакністасць**, -і, *ж.*

**ВАЛАКНО**, -а, *мн.* валокны, -аў, *н.* **1.** звычайна *мн.* Выцягнутая ў даўжыню клетка расліннай або жывёльнай тканкі. *Валокны драўніны. Нервовыя валокны.* **2.** таксама *зб.* Ніткападобная эластычная пасма расліннага, мінеральнага або штучнага паходжання. *Ільняное в. Штучнае в. Валокны цэлюлозы.* ‖ *памянш.* **валаконца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* ‖ *прым.* **валаконны**, -ая, -ае.

**ВАЛАКУША**, -ы, *мн.* -ы, -куш, *ж.* **1.** Прымітыўнае прыстасаванне ў выглядзе дзвюх змацаваных папярочкамі жардзін для перавозкі грузаў канём. *Вывезці сена з лесу на валакушах.* **2.** Агульная назва сельскагаспадарчых прылад для зграбання сена, саломы, выраўноўвання паверхні раллі і сенажаці.

**ВАЛАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прышыўная палоска лёгкай тканіны або карунак у выглядзе фальбоны ці брыжоў на сукенцы. **2.** Лёгкі мячык з пер'ем або шырокім хвалістым абадком для гульні ў бадмінтон. ‖ *прым.* **воланны**, -ая, -ае.

**ВАЛАНЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто добраахвотна ўдзельнічае ў якой-н. справе, не атрымліваючы за гэта грошай. ‖ *прым.* **валанцёрскі**, -ая, -ае.

**ВАЛАПЮК**, -а, *м.* **1.** Адна з першых штучных моў, створаная ў Германіі ў 1879 г. І.М.Шлеерам; яе меркавалі выкарыстаць у якасці адзінай сусветнай мовы. **2.** *перан.* Набор незразумелых слоў; тарабаршчына.

**ВАЛАСАТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты, аброслы валасамі. *Валасатыя рукі.* ‖ *наз.* **валасатасць**, -і, *ж.*

**ВАЛАСЕНЬ**, -сня, *мн.* -сні, -снёў, *м.* **1.** Паразітычны вадзяны чарвяк, падобны на волас. **2.** Хвароба скуры ног у чалавека і жывёлы ў выглядзе язваў.

**ВАЛАСІНА**, -ы, *мн.* -ы, -сін, *ж.* Адзінкавы волас. ‖ *памянш.* **валасінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -сінак, *ж.*

**ВАЛАСНЫ** *гл.* валасць.

**ВАЛАСНЯ**, -і, *ж., зб.* (разм., пагард.). Калматыя пасмы валасоў чалавека або шэрсці жывёлы. *Зарасці валаснёй.*

**ВАЛАСОК**, -ска, *мн.* -скі, -скоў, *м.* **1.** *гл.* волас. **2.** Тонкая металічная ніць, спружына, дроцік у якім-н. механізме. **3.** Тое, што і *варсінка* (у 2 знач.; спец.). ◊ **На валаску (вісець)** (разм.) — знаходзіцца ў вельмі ненадзейным, небяспечным становішчы. *Жыццё хворага на валаску.* **На валасок (валаску) ад чаго** — вельмі блізка (ад якога-н. няшчасця). *Быць на валасок ад смерці.*

**ВАЛАСЫ** *гл.* волас.

**ВАЛАСЯНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Невялікая пеўчая птушка атрада вераб'іных з тонкай шылападобнай дзюбай. ‖ *прым.* **валасянкавы**, -ая, -ае. *Сямейства валасянкавых* (наз.).

**ВАЛАСЯНЫ** *гл.* волас.

**ВАЛАЦУГА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.*; *ДМ* -цузе, *Т* -ай (-аю), *ж.*, *мн.* -і, -цуг (разм.). **1.** Бяздомны чалавек, які не мае пэўнага прыстанішча і заняткаў. **2.** Той, хто цягаецца абы-дзе, не працуе. **3.** Той, хто празмерна заляцаецца да жанчын.

**ВАЛАЦУЖНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Быць валацугам (-ай); бадзяцца. ‖ *наз.* **валацужніцтва**, -а, *н.*

**ВАЛАЦУЖНЫ**, -ая, -ае (разм.). Уласцівы валацугу (валацузе); бадзяжны. *Валацужнае жыццё.*

**ВАЛАЧЫ**, -лаку, -лачэш, -лачэ; -лачом, -лачаце, -лакуць; валок, -лакла, -лакло; валачы; -лочаны; *незак., каго-што.* **1.** Цягнуць волакам, не адрываючы ад паверхні чаго-н. *В. мех з бульбай.* **2.** Несці,

везці што-н. цяжкае, з цяжкасцю. *В. вязанку сена.* **3.** *што.* Красці (разм.). *Валаклі з гаспадаркі ўсё, што маглі.*

**ВАЛАЧЫ́СЯ**, -лаку́ся, -лачэ́шся, -лачэ́цца; -лачо́мся, -лачаце́ся, -лаку́цца; валóкся, -лакла́ся, -лакло́ся; валачы́ся; *незак.* **1.** Тое, што і *валачыцца* (у 1 знач.). **2.** Ісці з цяжкасцю, плесціся (разм.). *Ледзь валокся з поля.*

**ВАЛАЧЫ́ЦЦА**, -лачу́ся, -ло́чышся, -ло́чыцца; *незак.* **1.** Цягнуцца па зямлі. **2.** Блукаць, бадзяцца (разм.). **3.** *за кім.* Заляцацца (разм., пагард.). *За ёй валочыцца кінамеханік.*

**ВАЛАЧЫ́ЦЬ**, -лачу́, -ло́чыш, -ло́чыць; *незак.* **1.** *каго-што.* Тое, што і *валачы* (але абазначае дзеянне, якое адбываецца шматразова і ў розны час). *Валачыў воўк, павалаклі і ваўка.* **2.** Выцягваць з металу (спец.). *В. дрот.* ‖ *наз.* **валачэ́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **валачы́льны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *В. стан.*

**ВАЛЕЙБАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ігрок у валейбол. ‖ *ж.* **валейбалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ВАЛЕЙБО́Л**, -а, *м.* Спартыўная гульня ў мяч, які перакідваецца цераз сетку ад адной каманды да другой. ‖ *прым.* **валейбо́льны**, -ая, -ае. *Валейбольная пляцоўка.*

**ВА́ЛЕНЫ**, -ая, -ае. Зроблены шляхам валення (*гл.* валіць[2] у 3 знач.). *В. абутак.*

**ВАЛЕ́Т**, -а, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Малодшая фігура ў ігральных картах. *Званковы в.*

**ВАЛЁНКІ**, -нак *і* -нкаў, *адз.* валёнак, -нка, *м.* Зімовы абутак з воўны, звалены ў выглядзе ботаў.

**ВАЛІДО́Л**, -у, *м.* Сасударасшыральны сродак (вадкі або ў таблетках).

**ВА́ЛІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* вал[2]. **2.** Прадаўгаватая цыліндрычнай формы падушка для канапы, тахты і пад.

**ВАЛІ́ЦЦА**, валю́ся, ва́лішся, ва́ліцца; *незак.* Падаць уніз. *В. на зямлю. В. з ног ад стомы.* ◊ **Ад (з) ветру валіцца** (разм.) — пра слабасільнага чалавека. **Ва́ліцца з рук** (разм.) — не ладзіцца, не атрымліваецца, не ўдаецца (з-за адсутнасці жадання, настрою і пад. — пра работу, справу і пад.). ‖ *зак.* **павалі́цца**, -валю́ся, -ва́лішся, -ва́ліцца *і* **звалі́цца**, -валю́ся, -ва́лішся, -ва́ліцца.

**ВАЛІ́ЦЬ**[1], валю́, ва́ліш, ва́ліць; *незак.* **1.** *каго-што.* Прымушаць па́даць. *Бура валіць лес. В. з ног. В. дрэвы* (сячы, пілаваць; спец.). **2.** *што.* Скідаць у вялікай колькасці, складаць без разбору. *В. усё ў адну кучу* (таксама перан.: змешваць неаднолькавыя рэчы, з'явы, не бачыць розніцы паміж імі). **3.** *перан., што на каго-што.* Перакладаць (адказнасць, віну, работу і пад.) на каго-, што-н. (разм.). *В. віну на іншых. В. усё на абставіны.* ‖ *зак.* **павалі́ць**, -алю́, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены (да 1 знач.) *і* **звалі́ць**, -алю́, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены. ‖ *наз.* **ва́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* (да 1 знач.). *В. лесу.*

**ВАЛІ́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., ва́ліць; *незак.* **1.** Ісці, рухацца натоўпам або па́даць, паднімацца ў вялікай колькасці (разм.). *Натоўп валіць. Пара валіць.* **2.** *заг.* **валі́(це).** Ужыв. як пабуджэнне да дзеяння (разм.). *Ну, валі ў магазін!* **3.** *што.* Качаючы, збіваць з воўны. *В. валёнкі.* ‖ *зак.* **павалі́ць**, -валю́, -ва́ліш, -ва́ліць (да 1 і 3 знач.) *і* **звалі́ць**, -валю́, -ва́ліш, -ва́ліць; -ва́лены (да 3 знач.). *Паваліў снег. Павалiць (звалiць) усю воўну.* ‖ *наз.* **вале́нне**, -я, *н.* (да 3 знач.). *В. сукна.*

**ВАЛКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *незак., што.* Зграбаць скошаную траву, збажыну і пад. ў валкі. *В. сена.* ‖ *наз.* **валкава́нне**, -я, *н.*

**ВА́ЛКІ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які добра і хутка ўвальваецца. *Валкае сукно.* **2.** Пра паходку: хісткі, з перавальваннем з боку на бок. ‖ *наз.* **ва́лкасць**, -і, *ж.* (спец.).

**ВАЛЛЕКАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). З вялікім валляком. ‖ *наз.* **валлекава́тасць**, -і, *ж.*

**ВАЛЛЁ**, -я, *мн.* во́ллі, -яў, *н.* Пашыраная частка страва́вода ў птушак, насякомых, малюскаў, дзе папярэдне перапрацоўваецца ежа. ‖ *прым.* **валлёвы**, -ая, -ае.

**ВАЛЛЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Павелічэнне шчытападобнай залозы. **2.** Тое, што і *валлё.* ‖ *прым.* **валлякó́вы**, -ая, -ае.

**ВАЛО́ВЫ** *гл.* вол.

**ВАЛО́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *кім-чым.* Мець у сваёй уласнасці, уладаць. *В. маёмасцю.* **2.** *перан., кім.* Трымаць у сваёй уладзе, падпарадкоўваць сабе, кіраваць. *Адна думка ўвесь час валодае ім.* **3.** *чым.* Умець, мець магчымасць карыстацца чым-н., дзейнічаць пры дапамозе чаго-н. *В. зброяй. Не в. левай рукой. В. пяром* (умець добра пісаць). *В. некалькімі замежнымі мовамі* (ведаць іх). *В. сабой* (трымацца спакойна ў любых абставінах). ‖ *наз.* **вало́данне**, -я, *н.*

**ВАЛО́К**, -лка́, *мн.* -лкі́, -лко́ў, *м.* Доўгая града згрэбенага сена, збажыны і пад. *Зграбаць сена ў валкі.*

**ВАЛО́СКІ**, -ая, -ае. У выразе: **валоскі арэх** — грэцкі арэх.

**ВАЛО́ССЕ**, -я, *н., зб.* **1.** Шэрсць, волас жывёлы. **2.** Валасы (разм.).

**ВАЛО́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Травяністая расліна сямейства складанакветных, якая расце ў жыце і іншых злаках і цвіце сінімі кветкамі; васілёк. ‖ *прым.* **вало́шкавы**, -ая, -ае. *Валошкавыя вочы* (сінія, колеру валошкі).

**ВАЛТАРНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на валторне.

**ВАЛТО́РНА**, -ы, *мн.* -ы, валто́ран *і* -аў, *ж.* Медны духавы музычны інструмент у выглядзе спіральна сагнутай трубы з шырокім раструбам. ‖ *прым.* **валто́рнавы**, -ая, -ае.

**ВАЛТУ́ЗІЦЦА**, -ту́жуся, -ту́зішся, -ту́зіцца; *незак.* (разм.). **1.** Рабіць бязладныя, хаатычныя рухі, дурэючы або стараючыся вызваліцца з якога-н. становішча. *Дзеці валтузяцца.* **2.** Доўга займацца якой-н. справай, важдацца. *Няма часу цяпер з гэтым в.*

**ВАЛТУ́ЗІЦЬ**, -ту́жу, -ту́зіш, -ту́зіць; *незак., каго* (разм.). **1.** Тармасіць, тузаць. *В. за рукаў каго-н.* **2.** *перан.* Бесперастанку турбаваць. *В. па дробязных справах.*

**ВАЛТУЗНЯ́**, -і́, *ж.* (разм.). Шумны бязладны рух. *За сцяной чулася нейкая в.*

**ВАЛУ́Й**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Жаўтавата-белага колеру грыб сямейства сыраежкавых з увагнутай ліпкай шапкай.

**ВАЛУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Вялікі камень — абломак горнай пароды. ‖ *прым.* **валу́нны**, -ая, -ае.

**ВАЛЫ́НКА**[1], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Духавы народны музычны інструмент, зроблены з некалькіх трубак, устаўленых у скураны мяшок.

**ВАЛЫ́НКА**[2], -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Зацяжная справа; важданіна. *В. з рэцэнзіяй.* ◊ **Цягнуць валынку** — марудзіць з ажыццяўленнем чаго-н.

**ВАЛЬДШНЭ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *слонка.* ‖ *прым.* **вальдшнэ́павы**, -ая, -ае.

**ВАЛЬЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ер, *ж.* Абгароджаная пляцоўка для ўтрымання жывёлы, птушак (у заапарку і пад.). ‖ *прым.* **валье́рны**, -ая, -ае. *Вальернае ўтрыманне звяроў.*

**ВАЛЬНАДУ́МЕЦ**, -мца, *мн.* -мцы, -мцаў, *м.* Той, хто вызначаецца вальнадумствам. ‖ *ж.* **вальнаду́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак (разм.).

**ВАЛЬНАДУ́МСТВА**, -а, *н.* Крытычныя або негатыўныя адносіны да існуючых парадкаў [спачатку да рэлігіі]. ‖ *прым.* **вальнаду́мны**, -ая, -ае. *В. настрой.*

**ВАЛЬНАЛЮ́БСТВА** *гл.* вольналюбівы.

**ВАЛЬС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Плаўны танец трохдольнага размеру, а таксама музыка ў рытме такога танца. ‖ *прым.* **ва́льсавы**, -ая, -ае.

**ВАЛЬСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; *незак.* Танцаваць вальс. *Лёгка в.*

**ВАЛЬТА́Ж**, -у́, *м.* Устарэлая назва напружання электрычнага току. ‖ *прым.* **вальта́жны**, -ая, -ае.

**ВАЛЬТМЕ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння электрарухальнай сілы і напружання ў электрычным ланцугу.

**ВАЛЬФРА́М**, -у, *м.* Хімічны элемент, тугаплаўкі метал серабрыстага колеру. ‖ *прым.* **вальфра́мавы**, -ая, -ае.

**ВАЛЬЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *незак., што* (спец.). Пракатваць, прапускаць паміж вальцамі. *В. ліставое жалеза.* ‖ *наз.* **вальцо́ўка**, -і, *ДМ* -цо́ўцы, *мн.* -і, -цо́вак, *ж.* ‖ *прым.* **вальцо́вачны**, -ая, -ае.

**ВАЛЬЦО́ВЫ**, -ая, -ае. Абсталяваны вальцамі або зроблены пры дапамозе вальцаў. *В. млын. В. памол.*

**ВАЛЬЦО́ЎКА**, -і, *ДМ* -цо́ўцы, *мн.* -і, -цо́вак, *ж.* (разм., спец.). **1.** *гл.* вальцаваць. **2.** Машына, якой вальцуюць.

**ВАЛЬЦО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які абслугоўвае вальцовачныя машыны. ‖ *ж.* **вальцо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ВА́ЛЬЦЫ**, -аў, *адз.* ва́лец, -льца, *м.* Прэс у выглядзе двух або некалькіх цыліндраў, валкоў або конусаў, якія верцяцца ў розных напрамках і служаць для пракаткі, драблення чаго-н. ‖ *прым.* **вальцо́вы**, -ая, -ае. *В. станок.*

**ВАЛЮНТАРЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Ідэалістычная плынь у філасофіі, якая аб'яўляе волю вышэйшым, творчым прынцыпам быцця. **2.** У палітыцы і грамадскім жыцці: суб'ектывісцкія і адвольныя рашэнні, якія ігнаруюць аб'ектыўна існуючыя ўмовы і заканамернасці. ‖ *прым.* **валюнтарысты́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **валюнтары́сцкі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ВАЛЮ́ТА**, -ы, *ДМ* -люце, *мн.* -ы, валют, *ж.* **1.** Грашовая сістэма краіны, а таксама грашовыя адзінкі гэтай сістэмы. *Залатая в.* **2.** *зб.* Грошы замежных краін, якімі карыстаюцца ў міжнародных разліках. *Замежная в.* ‖ *прым.* **валю́тны**, -ая, -ае. *Валютныя аперацыі.* ○ **Валютны курс** — суадносіны паміж рознымі валютамі (у 1 знач.), кошт грашовай адзінкі адной краіны, выражаны ў валюце (у 1 знач.) другой краіны.

**ВАЛЮ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Спекулянт замежнай валютай. ‖ *ж.* **валю́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ВАЛЮ́ШНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для валення сукна. *Валюшная машына.*

**ВАЛЯВЫ́** *гл.* воля.

**ВАЛЯР'Я́Н**, -у, *м.* Травяністая расліна сямейства валяр'янавых з ружовымі кветкамі, з каранёў якой вырабляюць лекавыя настойкі. ‖ *прым.* **валяр'я́навы**, -ая, -ае. *Валяр'янавы настой.*

**ВАЛЯР'Я́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.). Валяр'янавыя каплі.

**ВАЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* **1.** Лежачы, пераварочвацца з боку на бок. *В. ў пяску.* **2.** Ляжаць, нічога не робячы, нядбайна разваліўшыся (разм.). *В. на канапе.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ляжаць у беспарадку, бязладна, як папала, не на месцы (разм.). *На падлозе валяецца ручнік.* ◊ **На дарозе не валяецца** — дарма, лёгка не дастаецца.

**ВАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* **1.** *каго-што.* Нахіліўшы, абарочваць, перакульваць. *Бура валяе дрэвы.* **2.** *заг.* **валя́й(це)**. Ужыв. ў якасці пабуджэння да дзеяння (разм.). *Валяй па дровы!*

**ВАМПІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Род буйных лятучых мышэй (кажаноў). **2.** У казках, старажытных павер'ях, прыгодніцкай літаратуры і кінафільмах: пярэварацень, мярцвяк, які нібыта выходзіць ноччу з магілы і смокча кроў жывых. **3.** *перан.* Бязлітасны эксплуататар, крывасмок. ‖ *прым.* **вампі́рскі**, -ая, -ае.

**ВАНА́ДЫЙ**, -ю, *м.* Хімічны элемент, тугаплаўкі метал светла-шэрага колеру. ‖ *прым.* **вана́дыевы**, -ая, -ае.

**ВАНДА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Разбуральнік культуры, варвар [па назве старажытнагерманскага племені].

**ВАНДАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Няшчаднае разбурэнне, знішчэнне гістарычных помнікаў і культурных каштоўнасцей; варварства. ‖ *прым.* **вандалі́сцкі**, -ая, -ае.

**ВАНДРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак.* **1.** Падарожнічаць, рабіць падарожжа. **2.** Часта мяняць месца жыхарства, весці неаседлы спосаб жыцця. **3.** *перан.* Пераходзіць з месца на месца. *Што вы вандруеце па шпіталі?* ‖ *наз.* **вандрава́нне**, -я, *н.*

**ВАНДРО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які вандруе, падарожнічае. **2.** Той, хто часта мяняе месца жыхарства, вядзе неаседлы спосаб жыцця; качэўнік. ‖ *ж.* **вандро́ўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **вандро́ўніцкі**, -ая, -ае.

**ВАНДРО́ЎНІЦТВА**, -а, *н.* **1.** Падарожжа. *В. ў далёкія краіны.* **2.** Пастаянныя пераходы, пераезды з месца на месца.

**ВАНДРО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае аселасці, вандруе з месца на месца. *Вандроўныя плямёны.* **2.** Уласцівы вандроўніку, звязаны з вандраваннем. *Вандроўнае жыццё.* **3.** Які часта пераходзіць, пераязджае з месца на месца або які працуе не на пастаянным месцы; перасоўны. *В. тэатр.*

**ВАНІЛІ́Н**, -у, *м.* Пахучае арганічнае рэчыва, якое знаходзіцца ў стручках ванілі або атрымана штучным спосабам. ‖ *прым.* **ванілінавы**, -ая, -ае.

**ВАНІ́ЛЬ**, -і, *ж.* Трапічная расліна з доўгімі тонкімі пладамі, а таксама плады гэтай расліны, якія ўжыв. ў кулінарыі і парфумерыі. ‖ *прым.* **вані́льны**, -ая, -ае.

**ВАНІТАВА́ЦЬ**, -ту́е; *безас., незак.* (разм.). Пра стан моташнасці, рвоты. *Мяне ванітавала. Ванітуе ад яго слоў* (перан.). ‖ *наз.* **ванітава́нне**, -я, *н.*

**ВАНІ́ТЫ**, -аў (разм.). Адвольнае вывяржэнне змесціва страўніка цераз рот, а таксама тое, што вывяргаецца пры ванітаванні, рвоце.

**ВА́ННА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Вялікая прадаўгаватая пасудзіна для мыцця, купання. *Мыцца ў ванне.* **2.** Мыццё ці лячэнне ў такой пасудзіне. *Прыняць ванну. Лячэбныя ванны.* **3.** *перан.* Лячэнне ўздзеяннем чаго-н. (вады, паветра, сонца) на цела. *Сонечныя ванны.* **4.** У тэхніцы: пасудзіна рознай формы і памеру для вадкасці, у якую апускаюць розныя прадметы пры іх апрацоўцы. *Фарбавальная в.* ‖ *памянш.* **ва́нначка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 і 4 знач.). ‖ *прым.* **ва́нны**, -ая, -ае. *В. пакой* або *ванная* (наз.).

**ВАНТРАБЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Каўбаса, зробленая з вантробаў.

**ВАНТРО́БЫ**, -аў. Унутраныя органы грудной клеткі і жывата. ◊ **Пераесці (ад'есці) вантробы** (разм., асудж.) — моцна надакучыць, стаць невыносным для каго-н. ‖ *прым.* **вантро́бны**, -ая, -ае.

**ВА́НЬКА-ЎСТА́НЬКА**, ва́нькі-ўста́нькі, *Т* ва́нькам-ўста́нькам, *мн.* ва́нькі-ўста́нькі, ва́нькаў-ўста́нькаў, *м.* Дзіцячая лялька ў выглядзе круглай або авальнай фігуркі, якая здольна сама ўставаць (з-за цяжару, які знаходзіцца ў ніжняй яе частцы), калі яе выводзяць з вертыкальнага становішча.

**ВА́ПЕЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Печ для выпальвання вапны ў вапняку. ‖ *прым.* **ва́пельны**, -ая, -ае.

**ВА́ПНА**, -ы, *ж.* Вокіс кальцыю — рэчыва белага колеру, якое здабываецца з вапняку. *Гашаная в. Даламітавая в.* ‖ *прым.* **ва́пнавы**, -ая, -ае. *В. завод. В. раствор.*

**ВАПНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -наваны; *незак., што* (спец.). Уносіць у глебу вапну. *В. кіслую глебу.* ‖ *наз.* **вапнава́нне**, -я, *н.*

**ВАПНЯ́К**, -у́, *м.* Асадкавая горная парода, якая мае ў сабе вапну. ‖ *прым.* **вапняко́вы**, -ая, -ае.

**ВАР**, -у, *м.* **1.** Вада ў стане кіпення або толькі што ўскіпелая вада. *В. з малінніккам. Як варам абдало* (аб прыліве крыві да твару, выкліканым адчуваннем няёмкасці, збянтэжанасці, хвалявання). **2.** Вараная смала (спец.).

**ВАРАГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; *незак.* (разм.). Быць у непрыязных адносінах.

**ВАРАЖБІ́Т**, -а́, *М* -біце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Той, хто займаецца варажбой. ‖ *ж.* **варажбі́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ВАРАЖЫ́ЦЬ**, -ражу́, -ро́жыш, -ро́жыць; *незак.* **1.** Прадказваць будучае або мінулае па картах, лініях рукі і пад. **2.** Меркаваць, рабіць здагадкі. ‖ *зак.* **паваражы́ць**, -ражу́, -ро́жыш, -ро́жыць (да 1 знач.) *і* **зваражы́ць**, -ражу́, -ро́жыш, -ро́жыць (да 1 знач.). ‖ *наз.* **варажба́**, -ы́, *ж.* (да 1 знач.).

**ВАРАНЁНЫ**, -ая, -ае. Пакрыты слоем вокіслу чорнага, цёмна-сіняга або карычневага колеру. *Варанёная сталь.*

**ВАРАНІ́ЦЬ**, -раню́, -ро́ніш, -ро́ніць; *незак., што.* Пакрываць паверхню металічных прадметаў (са сталі, чыгуну) тонкім слоем вокіслу чорнага, цёмна-сіняга або карычневага колеру, каб засцерагчы ад іржы; чарніць. *В. сталь.* ‖ *наз.* **варане́нне**, -я, *н.*

**ВАРАННЁ** *гл.* варона.

**ВА́РАНЫ**, -ая, -ае. Прыгатаваны пры дапамозе варкі. *Вараная бульба.* ◊ **Ні печаны ні вараны** (разм., неадабр.) — пра бесхарактарнага, нічым не адметнага чалавека.

**ВАРАНЫ́**, -а́я, -о́е. Чорны (пра масць коней).

**ВАРАНЯНЯ́** *і* **ВАРАНЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Птушаня вароны.

**ВАРАТА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Ігрок, які абараняе вароты ў спартыўных гульнях (гандбол, футбол, хакей). ‖ *прым.* **варата́рскі**, -ая, -ае.

**ВАРАЦІЛА**, -ы, *мн.* -ы, -ціл, *м.* (разм.). Той, хто варочае вялікімі справамі; дзялок. *Фінансавыя варацілы.*

**ВА́РАЧНЫ** *гл.* варыць.

**ВА́РВАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У старажытных грэкаў і рымлян: пагардлівая назва чужаземца. **2.** Някультурны, грубы, жорсткі чалавек. *Фашысцкія варвары.* ‖ *ж.* **ва́рварка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (да 2 знач.; разм.). ‖ *прым.* **ва́рварскі**, -ая, -ае.

**ВА́РВАРСТВА**, -а, *н.* Грубасць, дзікунства нораваў, невуцкія адносіны да культурных каштоўнасцей.

**ВАР'ЕТЭ́**, *нескл., н.* Эстрадны тэатр лёгкага жанру.

**ВАР'І́РАВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -руецца; *незак.* (кніжн.). Відазмяняцца, перайначвацца.

**ВАР'І́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., што* (кніжн.). Відазмяняць, даваць новыя варыянты, перайначваць. *В. апавяданне.*

**ВА́РКА** *гл.* варыць.

**ВАРКАТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ко́ча; *незак.* **1.** Муркаць (пра ката). **2.** Утвараць характэрныя для галубоў гукі; буркаваць. ‖ *наз.* **варката́нне**, -я, *н.*

**ВАРО́ЖЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* вораг. **2.** Вельмі непрыязны, поўны варожасці, нянавісці. *Варожыя адносіны. В. погляд.* **3.** Непрыяцельскі. *В. тыл.* ‖ *наз.* **варо́жасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ВАРО́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ро́н, *ж.* **1.** Птушка сямейства крумкачовых з чорна-шэрым або чорным апярэннем. **2.** *перан.* Пра нерастаропнага, нехлямяжага чалавека (разм.). ◊ **Белая варона** — пра чалавека, які рэзка выдзяляецца чым-н. сярод іншых. **Варон лічыць** — быць разявакай. ‖ *зб.* **вараннё**, -я́, *н.* (да 1 знач.). *Наляцела в.*

**ВАРО́НІН**, -а. Які належыць вароне. *Вароніна гняздо. Вароніны яйкі.*

**ВАРО́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., каго-што* (разм.). Быць нерастаропным, зяваць.

**ВАРО́НКА**[1], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Яма, утвораная разрывамі снарадаў, мін і пад. ‖ *прым.* **варо́начны**, -ая, -ае.

**ВАРО́НКА**[2], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Маладая варона.

**ВАРО́ТЫ**, -ро́т *і* -аў. **1.** Шырокі праезд у сцяне, плоце, які закрываецца створкамі або закладаецца жардзінамі, а таксама самі гэтыя створкі. *Зачыніць в. Ад варот паварот* (катэгарычная адмова; разм.). *Ні ў якія в. не лезе* (перан.: пра што-н. недарэчнае, бяссэнсавае; разм.). **2.** Два слупы з перакладзінай, якія з'яўляюцца месцам, куды заганяюць мяч або шайбу ў розных спартыўных гульнях. *Футбольныя в.* **3.** *перан.* Пункт, праз які ажыццяўляюцца інтэнсіўныя сувязі з навакольным светам. *Марскія в.* **4.** Вузкі праход паміж скаламі (на моры, у гарах). *Карскія вароты.* **5.** Арка ў памяць якой-н. падзеі. *Трыумфальныя в.* ‖ *памянш.* **варо́тцы**, -аў (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **варо́тны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Варотныя слупы.*

**ВАРО́ЧАЦЦА**[1] *гл.* вярнуцца[1].

**ВАРО́ЧАЦЦА**[2], -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** Пераварочвацца з боку на бок. *Неспакойна в. ў сне.* **2.** Хіліцца, нахіляцца на бок. *Прытрымліваць, едучы, скрынку, каб яна не варочалася.*

**ВАРО́ЧАЦЬ**[1] *гл.* вярнуць[1].

**ВАРО́ЧАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак.* **1.** *каго-што.* Пераварочваць з боку на бок, варушыць. *В. каменне. В. сена.* **2.** *што.* Валіць на бок, перакульваць. *В. крэслы.* **3.** *што, чым.* Круціць вакол восі. *В. кола.* **4.** *чым.* Распараджацца, кіраваць чым-н. вялікім, важным (разм.). *В. мільёнамі. В. справамі.*

**ВАРСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *незак., што* (спец.). Рабіць варсістым, начэсваць ворс. *В. сукно.* ‖ *зак.* **наварсава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны. ‖ *наз.* **варсава́нне**, -я, *н. і* **варсо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -со́вак, *ж.* ‖ *прым.* **варсава́льны**, -ая, -ае.

**ВАРСІ́НІСТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты варсінкамі. *Варсіністая абалонка.*

**ВАРСІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Валасок ворсу. **2.** Тонкі валасок на паверхні раслінных і жывёльных арганізмаў. **3.** Мікраскапічны выраст на слізістай абалонцы тонкіх кішак, праз які ўсмоктваюцца пажыўныя рэчывы (спец.). ‖ *прым.* **варсі́нкавы**, -ая, -ае.

**ВАРСІ́СТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты ворсам, з густым ворсам. *Варсістае сукно.* ‖ *наз.* **варсі́стасць**, -і, *ж.*

**ВА́РТА**[1], -ы, *ДМ* -рце, *ж.* **1.** Група людзей, прызначаная ахоўваць каго-, што-н. *Паставіць варту.* **2.** Вартаванне, абавязкі па ахове чаго-н. *Заступіць на варту.* **3.** Пункт вартавання, пост. *Паставіць на варту.* ◊ **Быць на варце** — ахоўваць, абараняць што-н. **На варце** *чаго* (быць або стаяць; высок.) — ахоўваючы і абараняючы што-н. **На варту** *чаго* (высок.) — на абарону. **Узяць пад варту** — арыштаваць. ‖ *прым.* **вартавы́**, -а́я, -о́е (да 1 і 2 знач.). *Вартавыя пункты. Пад аховай вартавых* (наз.).

**ВА́РТА**[2], *безас., у знач. вык.* **1.** *з інф.* Неабходна, трэба, мае сэнс. *Гэты фільм в. паглядзець. Над гэтым в. добра падумаць.* **2.** *каму.* Па заслугах, так і трэба. *Яму в., не трэба было так рабіць.* **3.** *з інф.* У саставе складаных сказаў абазначае ўмову хуткага з'яўлення наступных падзей. *В. задумацца, як нахлынуць успаміны.* ◊ **Гэта нікуды не варта; куды гэта варта** — вельмі дрэнна, непрыстойна.

**ВАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак., каго-што.* **1.** Ахоўваць, сцерагчы каго-, што-н. *В. грамадскае дабро.* **2.** Падсцерагаць, чакаць паяўлення каго-, чаго-н. *В. ліс.*

**ВА́РТАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Каштоўнасць, цана грашовага знака. *Аблігацыя вартасцю ў дзесяць рублёў.* **2.** Кошт чаго-н. у грашовых адзінках. *Вызначыць в. рэчы.* **3.** Колькасць грамадска неабходнай працы, затрачанай на вытворчасць тавару і ўвасобленай у гэтым тавары (спец.). *Прыбавачная в. Спажывецкая в. Менавая в. Закон вартасці.* ‖ *прым.* **ва́ртасны**, -ая, -ае (да 3 знач.; спец.). *Вартасныя паказчыкі.*

**ВАРТАЎНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Чалавек, які ахоўвае, вартуе што-н. *Начны в.* ‖ *ж.* **вартаўні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц. ‖ *прым.* **вартаўні́цкі**, -ая, -ае.

**ВАРТАЎНІ́ЧЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для вартаўніка. *Вартаўнічая будка.*

**ВА́РТЫ**, -ая, -ае. Які заслугоўвае чаго-н. або мае каштоўнасць. *В. ўвагі. В. пахвалы. Вопыт, в. перайманія.* ◊ **Адзін другога варты** (разм.) — пра людзей, якія ў аднолькавай ступені маюць адмоўныя якасці, рысы. **Гроша ломанага не варты** (разм.) — не мае ніякай вартасці, ніякага значэння. **Не варты выедзенага яйца** (разм.) — пра што-н. вельмі дробязнае, нікчэмнае. **Нікуды не варты** (разм.) — вельмі дрэнны.

**ВАРУШЫ́ЦЦА**, -рушу́ся, -ру́шышся, -ру́шыцца; *незак.* **1.** Ледзь прыкметна рухацца. *Ледзь варушылася лісце.* **2.** Кішэць, знаходзіцца ў хаатычным руху (пра вялікую колькасць каго-н.). *Каля пня варушыліся мурашкі.* **3.** *перан.* Займацца чым-н., актыўна дзейнічаць (разм.). *Каб усё паспяваць рабіць, трэба добра в.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Праяўляцца, прабуджацца (разм.). *Думкі пачынаюць в.* **5.** *заг.* **варушы́(це)ся.** Ужыв. пры пабуджэнні да дзеяння (разм.). *Но-о, гняды, варушыся!* ‖ *зак.* **паварушы́цца**, -рушу́ся, -ру́шышся, -ру́шыцца. ‖ *аднакр.* **варухну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся (да 1 і 2 знач.), **зварухну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся (да 1 і 2 знач.) *і* **паварухну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся (да 1 знач.). ‖ *наз.* **варушэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**ВАРУШЫ́ЦЬ**, -рушу́, -ру́шыш, -ру́шыць; *незак.* **1.** *каго-што.* Дакранаючыся да чаго-н., прыводзіць у рух. *Вецер варушыць траву.* **2.** *чым.* Рухаць павольна, злёгку. *В. губамі. В. мазгамі* (перан.: развважаць, думаць; разм., жарт.). **3.** *што.* Злёгку разграбаць, пераварочваць. *В. сена.* ‖ *зак.* **разварушы́ць**, -рушу́, -ру́шыш, -ру́шыць; -ру́шаны (да 3 знач.) *і* **паварушы́ць**, -рушу́, -ру́шыш, -ру́шыць. ‖ *аднакр.* **варухну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1 і 2 знач.), **зварухну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1 і 2 знач.) *і* **паварухну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 2 знач.). ◊ **Вухам не варухнуць** (разм.) — не звярнуць ніякай увагі на чые-н. словы, дзеянні і пад. ‖ *наз.* **варушэ́нне**, -я, *н.*

**ВАРШТА́Т**, -а, *М* -та́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяльна абсталяваны стол для ручной сталярнай, слясарнай і іншай работы. *Слясарны в.* **2.** Стан для красён (разм.). ‖ *прым.* **варшта́тны**, -ая, -ае.

**ВА́РЫВА**, -а, *н.* (разм.). Вараная рэдкая страва.

**ВАРЫ́ЦЦА**, вару́ся, ва́рышся, ва́рыцца; *незак.* **1.** Гатавацца кіпячэннем на агні. *Булён варыцца. Бульба варыцца.* **2.** Падвяргацца апрацоўцы шляхам кіпячэння, плаўлення. *Клей варыцца. Сталь варыцца.* ◊ **Варыцца ў сваім (уласным) саку** — жыць або працаваць, не падтрымліваючы сувязі з іншымі, не выкарыстоўваючы іх вопыт. ‖ *зак.* **звары́цца**, звару́ся, зва́рышся, зва́рыцца.

**ВАРЫ́ЦЬ**, вару́, ва́рыш, ва́рыць; ва́раны; *незак., што.* **1.** Гатаваць страву, пітво кіпячэннем на агні. *В. бульбу. В. абед.* **2.** Вырабляць што-н. шляхам кіпячэння, плаўлення і пад. *В. мыла. В. шкло.* **3.** Рабіць зварку металічных прадметаў і іх частак. *В. сталь.* ◊ **Галава варыць** *у каго* (разм.) — пра кемлівага, разумнага чалавека. ‖ *зак.* **звары́ць**, звару́, зва́рыш, зва́рыць; зва́раны. ‖ *наз.* **ва́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 1—3 знач.) *і* **варэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **ва́рачны**, -ая, -ае (спец.). *В. цэх.*

**ВАРЫЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Відазмяненне, разнавіднасць. *Праект у двух варыянтах. Дэбютны в.* (у шахматах). **2.** Розначытанне ў тэксце. *Выданне твораў Пушкіна з варыянтамі.*

**ВАРЫЯ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Варыянт (у 1 знач.; кніжн.). **2.** Відазмяненне музычнай тэмы (у 2 знач.). *Тэма з варыяцыямі.* ‖ *прым.* **варыяцы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *Варыяцыйнае вылічэнне* (адна з галін матэматычнага аналізу).

**ВАРЭ́НІКІ**, -аў, *адз.* варэ́нік, -а, *м.* Від вараных піражкоў, начыненых ягадамі, тварагом. *В. з вішнямі.*

**ВАРЭ́ННЕ**, -я, *н.* Ягады, фрукты, звараныя з цукрам, мёдам. *Яблычнае в.*

**ВАР'ЯВА́ЦЦА**, -р'ю́юся, -р'ю́ешся, -р'ю́ецца; -р'ю́йся; *незак.* Знаходзіцца ў стане крайняга ўзбуджэння, злосці, раз'юшанасці. ‖ *зак.* **узвар'ява́цца**, -р'ю́юся, -р'ю́ешся, -р'ю́ецца; -р'ю́йся *і* **развар'ява́цца**, -р'ю́юся, -р'ю́ешся, -р'ю́ецца; -р'ю́йся.

**ВАР'ЯВА́ЦЬ**, -р'ю́ю, -р'ю́еш, -р'ю́е; -р'ю́й; *незак.* Раздражняць, злаваць, даводзіць да шаленства. ‖ *зак.* **узвар'ява́ць**, -р'ю́ю, -р'ю́еш, -р'ю́е; -р'ю́й; -р'я́ваны.

**ВАР'Я́Т**, -а, *М* -р'я́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Псіхічна хворы чалавек. **2.** Пра таго, хто дзейнічае безразважна; шалёны; дзівак (лаянк.). ‖ *ж.* **вар'я́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ВАР'Я́ЦКІ**, -ая, -ае. **1.** Уласцівы вар'яту; такі, як у вар'ята. *В. смех. Вар'яцкія вочы.* **2.** Прызначаны для вар'ята (разм.). *В. дом.* **3.** Крайне безразважлівы, дзікі. *Вар'яцкія ідэі, планы.* **4.** *перан.* Які характарызуецца крайняй ступенню праяўлення (па сіле, велічыні, напружанасці; разм.). *Вар'яцкая сіла.*

**ВАР'Я́ЦТВА**, -а, *н.* **1.** Страта розуму, стан псіхічнага расстройства. **2.** Безразважнасць, неразумны ўчынак. *Дайсці да такога в.*

**ВАСА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сярэдневяковы землеўладальнік-феадал, які залежаў ад сюзерэна. **2.** *перан.* Пра падпарадкаваную або залежную асобу ці дзяржаву. ‖ *прым.* **васа́льны**, -ая, -ае.

**ВАСІЛЁК**, -лька́, *мн.* -лькі́, -лько́ў, *м.* Тое, што і *валошка.* ‖ *прым.* **васілько́вы**, -ая, -ае. *В. колер.*

**ВАСІЛІ́СК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Жывёліна з роду яшчарак з доўгім хвастом і грэбенем на спіне, жыве ў трапічнай Амерыцы. **2.** Казачная пачвара, змей, ад позірку якога гіне ўсё жывое.

**ВАСКАВА́НЫ**, -ая, -ае. Нацёрты або насычаны воскам. *Васкаваная папера.*

**ВАСКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *незак., што.* Націраць або насычаць воскам; вашчыць. *В. ніткі.* ‖ *зак.* **наваскава́ць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны.

**ВАСКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* воск. **2.** Колеру, падобнага на воск; жаўтлявы. *В. твар.* ○ **Васковая спеласць** — спеласць, якая папярэднічае поўнаму распяванню зерня.

**ВАСКО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ко́ўцы, *мн.* -і, -ко́вак, *ж.* (спец.). Васкаваная папера для чарцяжоў, адбіткаў з ратататара і пад.

**ВАСПАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Які мае сляды воспы; рабы. *В. твар.*

**ВА́СПА́Н**, -а, *м.* (уст.). Форма ветлівага звароту да мужчыны ў шляхечым асяроддзі; ваша міласць. ‖ *ж.* **васпа́ні**, *нескл.*

**ВАСТРА...** (*гл.* **востра...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «востра...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *вастраверхі, вастраносы.*

**ВАСТРАВЕ́РХІ**, -ая, -ае. З вострым верхам. *Вастраверхая вежа.*

**ВАСТРАВО́КІ**, -ая, -ае. Які добра бачыць, з вострым зрокам.

**ВАСТРАГУ́БЦЫ**, -аў. Вострыя шчыпцы для перацінання дроту, цвікоў; кусачкі.

**ВАСТРАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *м.* Невялікае дрэва сямейства па́дубавых з калючымі вечназялёнымі лістамі і цёмна-чырвонымі ягадамі.

**ВАСТРАНО́СЫ**, -ая, -ае. З вострым вузкім носам (пра жывых істот і прадметы). *В. хлапчук. Вастраносыя чаравікі.*

**ВАСТРАСЛО́ВІЦЬ**, -сло́ўлю, -сло́віш, -сло́віць; *незак.* (разм.). Суправаджаць гаворку дасціпнымі выразамі, вострымі жартамі; гаварыць дасціпна, трапна.

**ВАСТРАСЛО́Ў**, -ло́ва, *мн.* -ло́вы, -ло́ваў, *м.* Чалавек, які любіць і ўмее вастрасловіць; дасціпны, востры на язык.

**ВАСТРАСЛО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Здольнасць вастрасловіць.

**ВАСТРЫЁ**, -я́, *н.* **1.** Тонкі завостраны канец якога-н. прадмета, якой-н. прылады. *В. іголкі. В. штыка. В. шаблі.* **2.** *перан., чаго.* Самае істотнае ў чым-н., накіраванае супраць чаго-н. *В. сатыры. В. крытыкі.*

**ВАСТРЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для вастрэння інструментаў. *Вастрыльныя прылады.*

**ВАСТРЫ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст, які вострыць рэжучыя інструменты.

**ВАСТРЫНЯ́** *гл.* востры.

**ВАСТРЫ́ЦЬ**, вастру́, во́стрыш, во́стрыць; во́страны; *незак., што.* **1.** Рабіць што-н. вострым. *В. серп, нож, брытву. В. зброю* (таксама перан.: рыхтавацца да ўзброенага нападу на каго-н.). **2.** Рабіць завостраным (канец алоўка, пяра). *В. аловак.* ‖ *зак.* **навастры́ць**, -вастру́, -во́стрыш, -во́стрыць; -во́страны.

**ВАСТРЭ́Ц**, -рацу́, *м.* Стэпавая травяністая расліна сямейства злакавых, блізкая да пырніку.

**ВАСЬМЁРА**, -мяры́х, -мяры́м, -мяры́мі, *ліч. зб.* Восем. Ужыв.: а) з назоўнікамі мужчынскага або агульнага роду, якія абазначаюць асобу. *В. мужчын. В. гуляк;* б) з асабовымі займеннікамі ў мн.л. *Нас было в. Чакаем васьмярых;* в) з назоўнікамі мн.л., якія абазначаюць маладых істот. *В. дзяцей. В. парасят;* г) з множналікавымі назоўнікамі. *В. сутак. В. саней;* д) з некаторымі назоўнікамі, якія абазначаюць парныя прадметы. *В. вачэй. В. рукавіц;* е) без назоўнікаў, калі абазначае асоб мужчынскага і жаночага полу. *Іх было в.: тры хлопцы і пяць дзяўчат.*

**ВАСЬМЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Лічба 8. **2.** Група з васьмі чалавек або васьмі аднародных прадметаў. *В. самалётаў. Лодка-в.* (з чатырма парамі вёсел). **3.** Назва чаго-н., абазначанага лічбай 8 (разм.). *Самалёт зрабіў васьмёрку. Ехаць на васьмёрцы* (на трамваі, аўтобусе, тралейбусе пад №8). **4.** Ігральная карта з васьмю ачкамі. **5.** Школьная адзнака. ‖ *прым.* **васьмёрачны**, -ая, -ае.

**ВАСЬМІ...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач.: які складаецца з васьмі якіх-н. адзінак, напр.: *васьмікласны, васьмівугольны, васьмігадзінны, васьміграннік.*

**ВАСЬМІВУГО́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Геаметрычная фігура з васьмю вугламі, якія ўтвараюцца звёнамі замкнутай крывой лініі. *Правільны в.* ‖ *прым.* **васьмівуго́льны**, -ая, -ае. *Васьмівугольная вежа.*

**ВАСЬМІГАДЗІ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Працягласцю ў восем гадзін. *В. рабочы дзень.* **2.** Прызначаны на восем гадзін (разм.). *В. параход.*

**ВАСЬМІГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Якому споўнілася восем гадоў. *В. сын.* **2.** Тэрмінам у восем гадоў. *В. стаж.*

**ВАСЬМІДЗЯСЯ́ТЫ** *гл.* восемдзесят.

**ВАСЬМІКЛА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань восьмага класа. ‖ *ж.* **васьмікла́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ВАСЬМІСОТГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* васьмісотгоддзе. **2.** Які праіснаваў 800 гадоў.

**ВАСЬМІСОТГО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Тэрмін у 800 гадоў. **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, што была 800 гадоў таму назад. ‖ *прым.* **васьмісотгадо́вы**, -ая, -ае.

**ВАСЬМІСО́ТЫ** *гл.* восемсот.

**ВАСЬМІТЫ́СЯЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *Ліч. парадк.* да восем тысяч. **2.** Цаной у восем тысяч рублёў. **3.** Які складаецца з васьмі тысяч адзінак. *В. атрад.*

**ВАСЬМУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм., уст.). Восьмая доля, частка якога-н. прадмета або якой-н. адзінкі вымярэння. *В. махоркі* (адна восьмая частка фунта).

**ВАСЯМНА́ЦЦАЦЬ**, -і, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 18. ‖ *парадк.* **васямна́ццаты**, -ая, -ае. *В. год.*

**ВАТ**, -а, *М* ва́це, *м.* Адзінка вымярэння магутнасці электрычнага току. ‖ *прым.* **ва́тавы**, -ая, -ае.

**ВА́ТА**, -ы, *ДМ* ва́це, *ж.* Валакністы матэрыял з бавоўны, шэрсці або сінтэтычны, прызначаны для медыцынскіх, бытавых і тэхнічных мэт. *Стэрыльная в. Паліто на ваце.* ○ **Мінеральная вата** — сінтэтычны валакністы цепла- і гукаізалюючы будаўнічы матэрыял. ‖ *прым.* **ва́тны**, -ая, -ае.

**ВАТА́ГА**, -і, *ДМ* -та́зе, *мн.* -і, -та́г, *ж.* (разм.). Шумны натоўп, зборышча. *В. дзяцей. Хлапчукі ходзяць ватагай* (прысл.).

**ВА́ТМАН**, -у, *м.* Высокагатунковая тоўстая папера для чарчэння і малявання.

**ВАТО́ВЫ**, -ая, -ае. Зроблены з ваты, на ваце, падбіты ватай. *Ватовае паліто.*

**ВАТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *мн.* -і, -то́вак, *ж.* Ватовая фастрыгаваная куртка або безрукаўка.

**ВАТРУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Пірог, булка з загнутымі наверх краямі і тварагом пасярэдзіне. ‖ *прым.* **ватру́шачны**, -ая, -ае.

**ВАТЭРЛІ́НІЯ**, -і, *мн.* -і, -ній, *ж.* (спец.). Лінія на борце, да якой судна апускаецца ў ваду пры нармальнай асадцы.

**ВАТЭРПАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ігрок у ватэрпола. ‖ *ж.* **ватэрпалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ВАТЭРПА́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для праверкі гарызантальных плоскасцей і вымярэння невялікіх вуглоў нахілу, выкарыстоўваецца ў будаўнічых і цяслярскіх работах. ‖ *прым.* **ватэрпа́сны**, -ая, -ае.

**ВАТЭРПО́ЛА**, *нескл.*, *н.* Воднае пола. ‖ *прым.* **ватэрпо́льны**, -ая, -ае. *Ватэрпольная каманда.*

**ВАЎКАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). Нелюдзімы, хмуры, суровы. *В. чалавек.* ‖ *наз.* **ваўкава́тасць**, -і, *ж.*

**ВАЎКАДА́Ў**, -да́ва, *мн.* -да́вы, -да́ваў, *м.* Вялікі паляўнічы сабака, з якім ходзяць на ваўкоў.

**ВАЎКАЛА́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Паводле паданняў — чалавек (часам мярцвяк), здольны абарочвацца ў ваўка; пярэварацень.

**ВАЎКАЎЁ** *гл.* воўк.

**ВАЎНАЧО́СКА**, -і, *ДМ* -чо́сцы, *мн.* -і, -чо́сак, *ж.* Машына для часання воўны.

**ВАЎНЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Пласціністы грыб сямейства сыраежкавых, падобны на рыжык.

**ВАЎНЯ́НЫ** *гл.* воўна.

**ВАЎЧА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Адзін з відаў туберкулёзу скуры з язвамі, звычайна на твары. ‖ *прым.* **ваўча́начны**, -ая, -ае.

**ВАЎЧАНЯ́** *і* **ВАЎЧАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня ваўка.

**ВАЎЧА́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Паляўнічы-прафесіянал, які займаецца паляваннем на ваўкоў.

**ВАЎЧКІ́**, -о́ў. Травяністая расліна сямейства складанакветных з учэпістымі калючкамі. ‖ *прым.* **ваўчко́вы**, -ая, -ае.

**ВАЎЧО́К**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* **1.** *гл.* воўк. **2.** Цацка ў выглядзе круга або шарыка на шпяні, якая пры хуткім вярчэнні доўга захоўвае вертыкальнае становішча. *Пусціць в. Круціцца ваўчком* (перан.).

**ВАЎЧЫ́НЫ** *гл.* воўк.

**ВАЎЧЫ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -чы́ц, *ж.* Самка ваўка.

**ВА́ФЕЛЬНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Металічная форма, у якой пякуць вафлі.

**ВА́ФЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* вафля. **2.** Падобны на вафлю сваім малюнкам (пра баваўняную тканіну). *В. абрус.*

**ВА́ФЛЯ**, -і, *мн.* -і, ва́фель *і* -яў, *ж.* Сухое пячэнне з клятчастым адбіткам на паверхні. ‖ *прым.* **ва́фельны**, -ая, -ае *і* **ва́флевы**, -ая, -ае.

**ВАХЛА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (пагард., разм.). Нерастаропны, прастакаваты, а таксама неахайны з выгляду чалавек. *Не вахлакі ж тут сядзяць.* ‖ *прым.* **вахла́цкі**, -ая, -ае.

**ВА́ХМІСТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У царскай арміі: званне фельдфебеля ў кавалерыі, а таксама асоба, якая мае гэта званне. ‖ *прым.* **ва́хмістрскі**, -ая, -ае.

**ВА́ХТА**, -ы, *ДМ* -хце, *мн.* -ы, вахт *і* -аў, *ж.* **1.** У флоце: неадлучнае дзяжурства, а таксама змена, якая нясе такое дзяжурства. *Заступіць на вахту. Несці вахту. Начная в.* **2.** Месца, дзе знаходзіцца дзяжурны, вахцёр; памяшканне для вахцёраў (разм.). *Ключы на вахце.* **3.** *перан.*, *чаго* або *якая.* Самаадданая, поўная энтузіязму праца ў азнаменаванне чаго-н. (высок.). *Працоўная в.* ‖ *прым.* **ва́хтавы**, -ая, -ае. *В. журнал. Вахтавая служба.*

**ВАХЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дзяжурны сторож на прадпрыемстве, ва ўстанове. ‖ *ж.* **вахцёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **вахцёрскі**, -ая, -ае.

**ВАЦІ́Н**, -у, *м.* Рэдкая трыкатажная тканіна з густым начосам, якая падшываецца пад падкладку для ўцяплення вопраткі. ‖ *прым.* **ваці́навы**, -ая, -ае.

**ВАЧНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Паглыбленне ў пярэдняй частцы чэрапа, у якім змяшчаецца вочны яблык. ‖ *прым.* **вачні́чны**, -ая, -ае.

**ВАШ**, -ага, *м.*, ва́ша, -ай, *ж.*, ва́ша, -ага, *н.*, *мн.* ва́шы, -ых; *займ. прынал.* Які належыць вам, мае адносіны да вас. *Ваш веласіпед. А вашага* (наз.) *няма? Як вашы* (наз.: вашы родныя, блізкія) *пажываюць? Што вы прысталі да мяне з вашым Уладзімірам Андрэевічам.* ◊ **Па-вашаму** — 1) *прысл.* Па вашай волі, па вашым жаданні. *Няхай будзе па-вашаму;* 2) *прысл.* Так, як робіце вы. *Я па-вашаму тут рабіць не збіраюся;* 3) *пабочн. сл.* На вашу думку. *Гэта я, па-вашаму, хлушу?*

**ВАШЧЫ́НА**, -ы, *ж.* Пустыя пчаліныя соты або неачышчаны воск. ‖ *прым.* **вашчы́нны**, -ая, -ае.

**ВАШЧЫ́ЦЬ**, вашчу́, во́шчыш, во́шчыць; во́шчаны; *незак.*, *што.* Тое, што і *васкаваць. В. паркет.* ‖ *зак.* **навашчы́ць**, -вашчу́, -во́шчыш, -во́шчыць; -во́шчаны.

**ВАШЫ́ВАСЦЬ**, -і, *ж.* Заражанасць скуранога покрыва вошамі.

**ВАШЫ́ВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *незак.* Станавіцца вашывым. ‖ *зак.* **заваша́вець**, -ею, -ееш, -ее (разм.) *і* **абвашы́вець**, -ею, -ееш, -ее.

**ВАШЫ́ВЫ**, -ая, -ае. Які мае многа вошай, пакрыты вошамі.

**ВАЯВА́ЦЬ**, ваюю, ваюеш, ваюе; вају́й; *незак.* **1.** Весці вайну, удзельнічаць у вайне, змагацца. *В. да перамогі. В. з недахопамі* (перан.: змагацца). **2.** *перан.* Сварыцца, буяніць. *Напіўся, вось і ваюе.*

**ВАЯВО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -во́д, *м.* **1.** У Старажытнай Русі: начальнік войска, кіраўнік горада ці акругі. **2.** На тэрыторыі Заходняй Беларусі з 1920 да 1939 г. і ў Польшчы: кіраўнік ваяводства. ‖ *прым.* **ваяво́дскі**, -ая, -ае.

**ВАЯВО́ДСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Пасада ваяводы. **2.** Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Старажытнай Русі і ў Вялікім Княстве Літоўскім, якой кіраваў ваявода. **3.** Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў сучаснай Польшчы. ‖ *прым.* **ваяво́дскі**, -ая, -ае.

**ВАЯ́КА**, -і, *мн.* -і, вая́к, *м.* **1.** Вопытны і храбры воін (уст.). *Праслаўлены в.* **2.** Той, хто няўдала ваюе (разм., іран., пагард.). *Гэта быў мудры в.: на тачыле Байкал пераплываў.* **3.** *перан.* Задзіра, забіяка (іран., жарт.).

**ВАЯЎНІ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Схільны да вайны, храбры. *Ваяўнічыя плямёны.* **2.** Уласцівы воіну, мужны, адважны, баявы (таксама іран.). *В. выгляд. В. характар. Ваяўнічыя планы* (агрэсіўныя). ‖ *наз.* **ваяўні́часць**, -і, *ж.*

**ВЕГЕТАРЫЯ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Прыхільнік вегетарыянства. ‖ *ж.* **вегетарыя́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ВЕГЕТАРЫЯ́НСТВА**, -а, *н.* Сістэма харчавання, якая дазваляе ўжываць толькі раслінныя і малочныя прадукты. ‖ *прым.* **вегетарыя́нскі**, -ая, -ае. *В. стол.*

**ВЕГЕТАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які служыць для жыўлення, росту жывёльных і раслінных арганізмаў.

**ВЕГЕТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Рост і развіццё раслін. ‖ *прым.* **вегетацы́йны**, -ая, -ае. *В. перыяд.*

**ВЕ́ДАМА**. У выразах: **давесці да ведама** — паведаміць, перадаць; **прымаць да ведама** — даведаўшыся пра што-н., улічваць, пагаджацца.

**ВЕ́ДАМАСНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* ведамства. **2.** Абмежаваны вузкімі інтарэсамі толькі свайго ведамства. *В. падыход да справы.* ‖ *наз.* **ве́дамаснасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ВЕ́ДАМАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Спіс, зводка якіх-н. фактычных даных. *Разліковая в.* **2.** *мн.* Назва некаторых перыядычных выданняў. *Ведамасці Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.*

**ВЕ́ДАМСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Установа або сукупнасць устаноў, што абслугоўваюць якую-н. сферу дзяржаўнага кіравання. *Ваеннае в. Таможнае в.* ‖ *прым.* **ве́дамасны**, -ая, -ае.

**ВЕ́ДАННЕ**, -я, *н.* **1.** Знаёмства з чым-н., валоданне чым-н. *В. жыцця. З веданнем справы. В. замежнай мовы.* **2.** Падпарадкаванне, распараджэнне, кіраванне (кніжн.). *Інстытут знаходзіцца ў веданні міністэрства.*

**ВЕ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *пра каго-што, аб кім-чым* і *без дап.* Мець звесткі пра каго-, што-н. *В. жыццё вёскі.* **2.** *каго-што.* Валодаць пэўнымі ведамі, мець пра каго-, што-н. паняцце, уяўленне. *В. урок. В. сваю справу. В. англійскую мову.* **3.** *каго (што).* Быць знаёмым з кім-н. *Я гэтага чалавека не ведаю.* **4.** *што.* Адчуваць, перажываць. *Не в. спакою.* **5.** *што.* Захоўваць, лічыцца з чым-н. *В. меру* (трымаць сябе ў пэўных рамках). *В. сваё месца* (весці сябе адпаведна свайму становішчу). **6.** *чым.* Кіраваць, распараджацца. *В. трэстам. В. перапіскай.* ◊ **Хто яго ведае** (разм.) — невядома, ніхто не ведае.

**ВЕ́ДЗЬМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** У народных павер'ях: злая чараўніца. **2.** *перан.* Пра злую, сварлівую жанчыну (разм.).

**ВЕ́ДЫ**, -аў. **1.** Сукупнасць звестак, якія раскрываюць аб'ектыўныя заканамернасці жыцця. *Грунтоўныя в. Свет асвятляецца сонцам, а чалавек — ведамі.* **2.** Дасведчанасць у якой-н. галіне. *Вучні выявілі добрыя в. ў матэматыцы.*

**ВЕ́ЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Ручное прыстасаванне з пласцінак у выглядзе складнога паўкруга, якім абмахваюцца ў духату. **2.** *у знач. прысл.* **ве́ерам**. Паўкругам. *Хвост в.* ‖ *прым.* **ве́ерны**, -ая, -ае.

**ВЕ́ЖА**, -ы, *мн.* -ы, веж *і* -аў, *ж.* **1.** Высокае і вузкае архітэктурнае збудаванне. **2.** Ахоўная браніраваная вышка для гармат і кулямётаў на суднах, танках і пад. ‖ *прым.* **ве́жавы**, -ая, -ае. *В. кран.*

**ВЕ́ЗЦІ**[1], вязу́, вязёш, вязе́; вязём, везяце́, вязу́ць; вёз, ве́зла; вязі́; *незак., каго-што.* **1.** Перамяшчаць каго-, што-н. пры дапамозе якіх-н. сродкаў руху. *В. пясок на тачцы.* **2.** Адпраўляючыся ў паездку, мець пры сабе, з сабой. *В. дзяцей у вёску. В. многа навін.*

**ВЕ́ЗЦІ**[2], вязе́; *безас., каму ў чым* (разм.). Пра ўдачу ў чым-н.; шанцаваць. *Яму вязе ва ўсім.* ‖ *зак.* **паве́зці**, -вязе́ *і* **падве́зці**, -вязе́.

**ВЕ́ЙКА**, -а, *мн.* ве́йкі, ве́ек, *н.* Валасок на краі павека. *Доўгія вейкі.* ‖ *прым.* **ве́йкавы**, -ая, -ае.

**ВЕК**, -у, *мн.* вякі́, вяко́ў, *м.* **1.** Стагоддзе. *Дваццаты в. Мінулы в. Цэлы в. не бачыліся* (вельмі доўга). **2.** Гістарычны перыяд, эпоха, характэрныя чым-н. *Каменны в. Касмічны в. З векам уполеч* (ісці, крочыць і пад., не адстаючы ад жыцця). **3.** Жыццё, перыяд існавання каго-, чаго-н. або ўзрост каго-н. *Многа пабачыць на сваім вяку. У хлусні кароткі в.* (прыказка). *Чалавек сярэдняга веку.* **4.** *у знач. прысл.* Заўсёды, вечна. *В. дома яе няма. В. буду помніць вас.* ◊ **На векі вечныя** (разм.) — назаўсёды. **Праз вякі** — бязмежна доўга, на працягу доўгага часу. ‖ *прым.* **векавы́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**ВЕ́КА**, -а, *мн.* -і, -аў, *н.* Верхняя частка, якая служыць пакрыццём якой-н. пасудзіны, скрынкі, каробкі і пад. *В. куфра.* ‖ *памянш.* **ве́чка**, -а, *мн.* -і, -чак, *н.*

**ВЕКАВА́ЦЬ**, вяку́ю, вяку́еш, вяку́е; вяку́й; *незак.* Увесь час жыць дзе-н., знаходзіцца ў якім-н. стане, існаваць. *Век в. у дзеўках.*

**ВЕКАВЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які існуе многа вякоў; спрадвечны. *В. бор.*

**ВЕКАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* век. **2.** Даўні, які існуе вякамі. *В. дуб. Векавыя традыцыі.*

**ВЕ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Паказаная адрэзкам прамой матэматычная велічыня, якая характарызуецца лікавым значэннем і напрамкам. ‖ *прым.* **ве́ктарны**, -ая, -ае. *Вектарнае вылічэнне* (матэматычная дысцыпліна).

**ВЕКАПО́МНЫ**, -ая, -ае. Які будзе доўга помніцца, незабыўны. *Векапомныя падзеі.* ‖ *наз.* **векапо́мнасць**, -і, *ж.*

**ВЕЛА...** Першая састаўная частка складаных і складанаскарочаных слоў, якая па знач. адпавядае слову «веласіпедны», напр.: *веласпорт, велатрэк, велакамера.*

**ВЕЛАГО́НКІ**, -нак, *адз.* велаго́нка, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Веласіпедныя гонкі. ‖ *прым.* **велаго́начны**, -ая, -ае.

**ВЕЛАГО́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца веласіпедным спортам. ‖ *ж.* **велаго́ншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **велаго́ншчыцкі**, -ая, -ае.

**ВЕЛАДРО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльна абсталяванае збудаванне для трэніровак і спаборніцтваў па веласіпедным спорце. ‖ *прым.* **веладро́мны**, -ая, -ае.

**ВЕЛАСІПЕ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Двух- або трохколая машына для язды, якая прыводзіцца ў рух націскнымі педалямі. ‖ *прым.* **веласіпе́дны**, -ая, -ае.

**ВЕЛАСІПЕДЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто едзе на веласіпедзе, а таксама той, хто займаецца веласіпедным спортам. ‖ *ж.* **веласіпеды́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **веласіпеды́сцкі**, -ая, -ае.

**ВЕЛІЗА́РНЫ**, -ая, -ае. Вельмі вялікі. *Велізарная плошча. В. поспех.* ‖ *наз.* **веліза́рнасць**, -і, *ж.*

**ВЕЛІКА...** (*гл.* **вяліка...**). Першая частка складаных слоў; ужыв. замест «вяліка...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *велікадушны, велікарослы, велікасвецкі.*

**ВЕЛІКАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Крыху большы, чым патрэбна, па памеры. *Велікаватая шапка.*

**ВЕЛІКАДУ́ШНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Выяўляць, паказваць велікадушнасць. ‖ *зак.* **звелікаду́шнічаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЕЛІКАДУ́ШНЫ**, -ая, -ае. Які валодае высокімі душэўнымі якасцямі, паблажлівы да іншых, гатовы бескарысліва ахвяраваць сваімі інтарэсамі. *В. характар. В. ўчынак. Велікадушна* (прысл.) *даруйце мне.* ‖ *наз.* **велікаду́шнасць**, -і, *ж.*

**ВЕЛІКА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек надзвычай высокага росту. ‖ *ж.* **веліка́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **веліка́нскі**, -ая, -ае.

**ВЕЛІКАРУ́СЫ**, -аў, *адз.* -ру́с, -а, *м.* (кніжн.). Тое, што і *рускія.* ‖ *ж.* **велікару́ска**, -і, *ДМ* -русцы, *мн.* -і, -сак. ‖ *прым.* **велікару́скі**, -ая, -ае.

**ВЕЛІКАСВЕ́ЦКІ**, -ая, -ае (уст.). Які мае адносіны да арыстакратычных слаёў грамадства, да так званага вялікага свету. *Велікасвецкія манеры. В. салон.*

**ВЕЛІКО́ДНЫ** *гл.* Вялікдзень.

**ВЕ́ЛІЧ**, -ы, *ж.* **1.** Што-н. надзвычай вялікіх памераў; гмах. *В. дрэва. В. гор.* **2.** Грандыёзнасць, надзвычайная сіла праяўлення чаго-н., што выклікае вялікую павагу. *В. подзвігу. В. таленту.* **3.** Вялікае значэнне каго-, чаго-н. *В. перамогі.*

**ВЕЛІЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго.* **1.** Называць па імені і па бацьку, па званні і пад. **2.** Ушаноўваць віншавальнай песняй (у народных абрадах; уст.). ‖ *наз.* **веліча́нне**, -я, *н.*

**ВЕ́ЛІЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Поўны велічы (у 2 знач.), урачыстасці; грандыёзны. *Велічная мэта. В. помнік.* **2.** Важны, горды, поўны ўласнай гордасці. *Велічная поза. В. позірк.* ‖ *наз.* **ве́лічнасць**, -і, *ж.*

**ВЕЛІЧЫНЯ́**, -і́, *мн.* велічы́ні *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) велічыні́, -чы́нь, *ж.* **1.** Памер, аб'ём, працягласць чаго-н. *Стол сярэдняй велічыні. Змераць велічыню пакоя.* **2.** Колькасць чаго-н.; сума; лік. *В. зарплаты. В. асігнаванняў.* **3.** Усё тое, што можна вымераць, злічыць (спец.). *Пастаянная в. Бясконца малая в. Роўныя велічыні.* **4.** *перан.,* толькі *адз.* Пра чалавека, выдатнага ў якой-н. галіне дзейнасці. *Ён сусветная в. ў навуцы.*

**ВЕЛІЧЭ́ЗНЫ**, -ая, -ае. Надзвычай вялікі, велізарны. *В. завод.* ‖ *наз.* **веліч́эзнасць**, -і, *ж.*

**ВЕЛЬБО́Т**, -а, *М* -бо́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лёгкая быстраходная шлюпка з вострым

носам і кармой, звычайна з невялікай мачтай. ‖ *прым.* **вельбо́тны**, -ая, -ае.

**ВЕЛЬВЕ́Т**, -у, *М* -ве́це, *м.* Баваўняная рубчастая тканіна з густым кароткім ворсам. ‖ *прым.* **вельве́тавы**, -ая, -ае.

**ВЕ́ЛЬМІ**, *прысл.* Надта, у вялікай ступені. *В. цікавая кніга. Было в. горача. Не в. (што)* (не зусім добры, так сабе; разм.). ◊ **Вельмі добра** — надзвычай добра.

**ВЕЛЮ́Р**, -у, *м.* Драп або фетр з мяккім густым кароткім ворсам, а таксама мяккая скура, выробленая пад аксаміт. ‖ *прым.* **велю́равы**, -ая, -ае.

**ВЕ́НА**, -ы, *мн.* -ы, вен, *ж.* Крывяносны сасуд, па якім кроў рухаецца да сэрца. ‖ *прым.* **вяно́зны**, -ая, -ае.

**ВЕНГЕ́РКА**[1], -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Танец венгерскага паходжання, а таксама музыка да яго. **2.** Куртка з нашытымі папярочнымі шнурамі (на ўзор формы венгерскіх гусар).

**ВЕНГЕ́РКА**[2] *гл.* венгры.

**ВЕ́НГРЫ**, -аў, *адз.* венгр, -а, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Венгрыі. ‖ *ж.* **венге́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **венге́рскі**, -ая, -ае.

**ВЕНЕРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які займаецца вывучэннем і лячэннем венерычных хвароб. ‖ *прым.* **венералагі́чны**, -ая, -ае. *В. дыспансер.*

**ВЕНЕРО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач, спецыяліст па венерычных хваробах.

**ВЕНЕРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да заразнага захворвання, што перадаецца пераважна палавым шляхам. *Венерычныя хваробы.*

**ВЕ́НЗЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Пачатковыя літары імя і прозвішча або імя і імя па бацьку, звязаныя ў агульны малюнак. ‖ *прым.* **ве́нзелевы**, -ая, -ае.

**ВЕ́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Звязаны пучок галінак для падмятання падлогі, парання ў лазні. *Вязаць венікі. Бярозавы в.*

**ВЕ́НТЫЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (спец.). **1.** Клапан для рэгулявання расходу вадкасці, пары, газу ў некаторых тэхнічных устройствах. **2.** Клапан у музычных інструментах для рэгулявання вышыні гуку. ‖ *прым.* **ве́нтыльны**, -ая, -ае.

**ВЕНТЫЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны *і* **ВЕНТЫЛІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., што.* Рабіць вентыляцыю (у 1 знач.). ‖ *зак.* **правентылява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, лю́е; -лю́й, -ля́ваны *і* **правентылі́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**ВЕНТЫЛЯ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для ўзмацнення перамяшчэння паветра пры праветрыванні закрытых памяшканняў.

**ВЕНТЫЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Праветрыванне закрытага памяшкання. *В. пакоя.* **2.** Сістэма ўстройстваў для праветрывання памяшкання. *Пераманціраваць вентыляцыю.* ‖ *прым.* **вентыляцы́йны**, -ая, -ае.

**ВЕ́НЦЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рыбалоўная сетка ў выглядзе нацягнутага на абручы звужанага ўнізе мяшка. ‖ *прым.* **ве́нцерны**, -ая, -ае.

**ВЕ́НЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* вянец. **2.** Частка кветкі, якая складаецца з асобных пялёсткаў або шэрагу зрослых пялёсткаў. ‖ *прым.* **ве́нчыкавы**, -ая, -ае.

**ВЕПР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Самец дзікай свінні; дзік. ‖ *прым.* **вяпро́вы**, -ая, -ае. *Вяпровая шынка.*

**ВЕПРУЧО́К** *гл.* вяпрук.

**ВЕПРУЧЫ́НА**, -ы, *ж.* Мяса дзікай свінні. *Пакаштаваць вепручыны.*

**ВЕПРУЧЫ́НЫ** *гл.* вяпрук.

**ВЕ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Упэўненасць у кім-, чым-н. *В. ў свае сілы. В. ў людзей.* **2.** Перакананне ў існаванні звышнатуральных сіл. *В. ў Бога.* **3.** Тое, што і *рэлігія. Хрысціянская в. Чалавек другой веры.* ◊ **Браць (узяць) на веру** (разм.) — верыць, давяраць (паверыць, даверыць) без доказаў. **Верай і праўдай** (служыць) — аддана, чэсна.

**ВЕРАБЕ́Й**, -б'я́, *мн.* -б'і́, -б'ёў, *м.* Невялікая птушка атрада вераб'іных з карычнева-шэрым апярэннем, якая жыве пераважна паблізу чалавека. ◊ **Стрэляны** або **стары верабей** — вопытны, бывалы чалавек. ‖ *памянш.* **верабе́йка**, -і, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **вераб'і́ны**, -ая, -ае. *Вераб'іная ноч* (кароткая летняя ноч, а таксама ноч з беспярэпыннай навальніцай і зарніцамі).

**ВЕРАБ'ЯНЯ́** *і* **ВЕРАБ'ЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Птушаня вераб'я.

**ВЕ́РАВАННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Рэлігійныя погляды, уяўленні, вера (у 2 знач.). *Вераванні старажытных славян.*

**ВЕ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., у каго-што.* Тое, што і *верыць.*

**ВЕРАВУЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Сукупнасць асноўных палажэнняў якой-н. рэлігіі. *Хрысціянскае в.*

**ВЕРАВЫЗНА́ННЕ**, -я, *н.* Разнавіднасць якога-н. веравучэння ў спалучэнні з уласцівай яму абраднасцю. *Свабода веравызнання.* ‖ *прым.* **веравызна́льны**, -ая, -ае.

**ВЕРАГО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не выклікае сумнення; надзейны. *Верагодныя звесткі.* **2.** Дапушчальны, магчымы. *В. вывад.* ‖ *наз.* **верagóднасць**, -і, *ж.*

**ВЕРАДЗІ́ЦЦА**, вераджу́ся, вяро́дзішся, вяро́дзіцца; *незак.* (разм.). Натруджвацца, надрывацца, што-н. робячы.

**ВЕРАДЗІ́ЦЬ**, вераджу́, вяро́дзіш, вяро́дзіць; вяро́джаны; *незак., што* (разм.). Шкодзіць што-н. сабе, натруджваючы, надрываючы, або раздражняць балючае. *В. рукі, спіну. В. рану. В. сардэчныя раны* (перан.: выклікаць цяжкія ўспаміны). ‖ *зак.* **зверадзі́ць**, звераджу́, звяро́дзіш, звяро́дзіць; звяро́джаны *і* **развераадзі́ць**, -вераджу́, -вяро́дзіш, -вяро́дзіць; -вяро́джаны.

**ВЕРАЛО́МНЫ**, -ая, -ае. Каварны, які дзейнічае шляхам абману, здрады. *В. напад.* ‖ *наз.* **веpало́мства**, -а, *н.*

**ВЕРАЛО́МСТВА**, -а, *н.* **1.** *гл.* вераломны. **2.** Парушэнне абавязацельстваў, клятвы; здрада, вераломны ўчынак.

**ВЕРА́НДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ра́нд *і* -аў, *ж.* Адкрытая або зашклёная тэраса ўздоўж сцяны дома. *Адкрытая в.* ‖ *прым.* **вера́ндавы**, -ая, -ае *і* **вера́ндны**, -ая, -ае.

**ВЕ́РАС**, -у, *мн.* верасы́, -о́ў, *м.* Нізкая вечназялёная кустовая расліна сямейства верасовых з дробным лісцем і лілова-ружовымі кветкамі. ‖ *прым.* **верaсо́вы**, -ая, -ае. *Сямейства верасовых* (наз.).

**ВЕ́РАСЕНЬ**, -сня, *н.* Дзявяты месяц каляндарнага года. ‖ *прым.* **вераснёвы**, -ая, -ае *і* **вераснёўскі**, -ая, -ае (разм.).

**ВЕРАЎЧА́НЫ**, -ая, -ае. Зроблены з тонкіх вяровак. *Вераўчаная аброць.*

**ВЕРАЦЯНО́**, -а́, *мн.* верацёны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) верацяны́, верацён *і* -аў, *н.* **1.** Прыстасаванне для ручнога прадзення ў выглядзе круглай драўлянай палачкі з патаўшчэннем унізе і завостранымі канцамі. **2.** Шпень, які з'яўляецца воссю вярчэння ў некаторых механізмах. ‖ *памянш.* **верaце́нца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* ‖ *прым.* **верацённы**, -ая, -ае.

**ВЕРАЦЯРПІ́МАСЦЬ**, -і, *ж.* Цярпімасць да чужой рэлігіі, прызнанае яе права на свабоднае існаванне.

**ВЕРАШЧА́КА**, -і, *ДМ* -шча́цы, *ж.* Рэдкая мучная страва з мясам, каўбасой і рознымі прыправамі.

**ВЕРАШЧА́ЦЬ**, -шчу́, -шчы́ш, -шчы́ць; -шчы́м, -шчыце́, -шча́ць; -шчы́; *незак.* Віскліва з пераліvамі пішчаць, гучаць.

**ВЕРБАВА́ЦЬ**, вярбую, вярбу́еш, вярбу́е; вярбу́й; вербава́ны; *незак., каго.* Набіраць, наймаць людзей на якую-н. працу, схіляць да ўступлення ў якую-н. арганізацыю. *В. рабочых на лесаразпрацоўкі. В. дабравольцаў.* ‖ *зак.* **завербава́ць**, -вярбу́ю, -вярбу́еш, -вярбу́е; -вярбу́й; -вербава́ны. ‖ *наз.* **вярбо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -бо́вак, *ж.* ‖ *прым.* **вярбо́вачны**, -ая, -ае.

**ВЕРБАЛО́З**, -у, *м.* Куст ці дрэва сямейства вярбовых. ‖ *прым.* **вербало́завы**, -ая, -ае.

**ВЕРБА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Вусны. *Вербальная заява.* ○ **Вербальная нота** (спец.) — дыпламатычная нота без подпісу, якая прыраўноўваецца да вуснай заявы. ‖ *наз.* **верба́льнасць**, -і, *ж.*

**ВЕРБЕ́НА**, -ы, *ж.* Травяністая ці кустовая дзікарастучая духмяная расліна. ‖ *прым.* **вербе́навы**, -ая, -ае. *Сямейства вербенавых* (наз.).

**ВЕРБЛЮДЗЯНЯ́** *і* **ВЕРБЛЮДЗЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня вярблюда.

**ВЕРБНЯКО́ВЫ** *гл.* вярбняк.

**ВЕРДЫ́КТ**, -у, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Рашэнне прысяжных засядацеляў аб вінаватасці або невінаватасці абвінавачанага. *Вынесці апраўдальны (абвінаваўчы) в.* ‖ *прым.* **верды́ктны**, -ая, -ае.

**ВЕ́РМАХТ**, -а, *М* -хце, *м.* Узброеныя сілы фашысцкай Германіі. *Разгром вермахта.*

**ВЕРМІШЭ́ЛЬ**, -і, *ж.* Гатунак тонкай круглай локшыны фабрычнага вырабу. ‖ *прым.* **вермішэ́левы**, -ая, -ае.

**ВЕ́РМУТ**, -у, *М* -муце, *м.* Род вінаграднага віна з настоямі з траў. ‖ *прым.* **ве́рмутавы**, -ая, -ае.

**ВЕРНАПАДДА́НЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* (уст.). Чалавек, які захоўвае вернасць манарху. ‖ *ж.* **вернападда́ная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых. ‖ *прым.* **вернападда́нніцкі**, -ая, -ае. *Вернападданніцкія пачуцці* (таксама ўвогуле пра адданасць уладзе, правячай вярхушцы; іран.).

**ВЕ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які верыць у існаванне Бога; веруючы. ‖ *ж.* **ве́рніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **ве́рніцкі**, -ая, -ае.

**ВЕРНІСА́Ж**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урачыстае адкрыццё мастацкай выстаўкі. ‖ *прым.* **вернісажны**, -ая, -ае.

**ВЕ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адпавядае ісціне; правільны, дакладны. *Верная думка. В. шлях. Верна* (прысл.) *скалькаваць.* **2.** Несумненны, непазбежны. *В. выйгрыш. Ісці на верную пагібель.* **3.** Надзейны, трывалы, стойкі. *Верная апора. Верна* (прысл.) *служыць. В. сябар. В. ў каханні.* ‖ *наз.* **ве́рнасць**, -і, *ж.*

**ВЕРСІФІКА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Чалавек, які лёгка складае вершы, але не мае паэтычнага дару. ‖ *прым.* **версіфіка́тарскі**, -ая, -ае.

**ВЕ́РСІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* Адзін з варыянтаў выкладу або тлумачэння якога-н. факта ці падзеі. *Новая в.*

**ВЕРСТАВЫ́** *гл.* вярста.

**ВЕРТАЛЁТ**, -а, *М* -лёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лятальны апарат спецыяльнай канструкцыі, прыстасаваны для вертыкальнага ўзлёту і пасадкі. ‖ *прым.* **верталётны**, -ая, -ае.

**ВЕРТАЛЁТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па вырабе і ваджэнні верталётаў. ‖ *ж.* **верталётчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ВЕРТЫКА́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Вертыкальная лінія. *Па вертыкалі.* **2.** Сістэма арганізацыі органаў кіравання. *Прэзідэнцкая в.*

**ВЕРТЫКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Адвесны, перпендыкулярны ў адносінах да гарызонту; *проціл.* гарызантальны. ‖ *наз.* **вертыка́льнасць**, -і, *ж.*

**ВЕ́РУЮЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Чалавек, які верыць у існаванне Бога. ‖ *ж.* **ве́руючая**, -ай, *мн.* -ыя, -ых.

**ВЕРФ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Прадпрыемства для будоўлі і рамонту суднаў. *Карабельная в.* ‖ *прым.* **ве́рфавы**, -ая, -ае.

**ВЕРХ**, -у, *М* на ве́рсе, *мн.* вярхі́, вярхо́ў, *м.* **1.** Найбольш высокая, размешчаная над іншымі частка чаго-н. *В. дома. В. гары. Жыць на самым версе.* **2.** Пад'ёмны навес экіпажа, аўтамашыны. *Грузавік з брызентавым верхам.* **3.** Добры бок адзення, пакрыты, абшыты матэрыяй, а таксама сама матэрыя; верхняя частка шапкі з другой матэрыі; верхняя частка абутку. *Драпавы в. паліто. Скураны в.* (абутку). **4.** *перан., адз.* Перавага (разм.). *Паглядзім, чый тут в. будзе. Браць в.* (перамагаць). **5.** *перан., чаго, адз.* Вышэйшая, крайняя ступень чаго-н. *В. дасканаласці. В. майго жадання.* **6.** *мн.* Вышэйшыя кіруючыя колы грамадства. *Кіруючыя вярхі. Сустрэча ў вярхах.* **7.** *перан., мн.* Неглыбокія, павярхоўныя веды; знешні бок з'явы (разм.). *Нахапацца вярхоў. Слізгаць па вярхах.* **8.** *мн.* Высокія ноты (спец.). *Браць вярхі.*

**ВЕРХАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* Верх, верхняя частка чаго-н. *В. дрэва.* ‖ *памянш.* **верхаві́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **верхаві́нны**, -ая, -ае *і* **верхаві́нкавы**, -ая, -ае.

**ВЕРХАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто верхаводзіць. ‖ *ж.* **верхаво́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак.

**ВЕРХАВЫ́**, -а́я, -о́е. Які мае дачыненне да язды вярхом, прызначаны для такой язды. *Верхавая язда. В. конь. Прыслаць верхавога* (наз.).

**ВЕРХАГЛЯ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, каму ўласціва верхаглядства, хто адрозніваецца верхаглядствам. ‖ *ж.* **верхагля́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак.

**ВЕРХАГЛЯ́ДСТВА**, -а, *н.* (разм.). Павярхоўнае, неглыбокае знаёмства з чым-н.

**ВЕРХАЛА́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па выкананні работ на вялікай вышыні. **2.** Гарэза, свавольнік (разм.). ‖ *ж.* **верхала́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак (да 2 знач.; разм.). ‖ *прым.* **верхала́зны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Верхалазныя работы.*

**ВЕ́РХАМ**, *прысл.* Зверху, па версе. *Агонь пайшоў в.*

**ВЕРХАТУ́РА**, -ы, *ж.* (разм.). Высока размешчаная частка чаго-н. *Сядзець на верхатуры.*

**ВЕРХНЕ...** (а таксама **верхня...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які размяшчаецца або ўзнікае ў верхняй частцы чаго-н., напр.: *верхнедняпроўскі, верхнялужыцкі.*

**ВЕ́РХНІ**, -яя, -яе. **1.** Які знаходзіцца, размешчаны на версе, вышэй за іншых. *В. слой. Верхняя губа.* **2.** Блізкі да вытокаў. *Верхняе цячэнне.* **3.** Які надзяваецца зверху на што-н. *Верхняе адзенне.* **4.** Які адносіцца да вярхоў (у 8 знач.). *В. рэгістр.*

**ВЕРХНЯ...** (*гл.* **верхне...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «верхне...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *верхнядзвінскі, верхняволжскі.*

**ВЕРШ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Невялікі мастацкі твор, напісаны рытмізаванай мовай. *Зборнік вершаў. Вершы Максіма Багдановіча.* **2.** Адзінка рытмічна арганізаванай мовы, вершаваны радок. *Памер верша. Раман у вершах.* **3.** Рытмізаваная мова. *Гаварыць вершам.* ○ **Белы верш** — верш без рыфмы. **Вольны верш** — верш, які не мае рыфмы і характарызуецца нязэпэўнай колькасцю стоп у радку. **Верш у прозе** — невялікі эмацыянальна насычаны твор у празаічнай форме. ‖ *прым.* **ве́ршавы**, -ая, -ае.

**ВЕРШАВА́НЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да вершаў, вершаскладання, напісаны вершамі, не празаічны. *Вершаваная форма. В. фельетон.*

**ВЕРШАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Навука пра верш і вершаскладанне. ‖ *прым.* **вершазна́ўчы**, -ая, -ае.

**ВЕРШАПЛЁТ**, -а, *М* -плёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., пагард.). Дрэнны, бяздарны паэт. ‖ *ж.* **вершаплётка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **вершаплёцкі**, -ая, -ае.

**ВЕРШАСКЛАДА́ННЕ**, -я, *н.* Будова вершаванай мовы. *Сілабічнае в.*

**ВЕ́РЫЦЦА**, -рыцца; *безас., незак.* Здавацца сапраўдным. *У гэта цяжка в.*

**ВЕ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* **1.** *у што.* Быць перакананым, упэўненым у чым-н. *В. у перамогу. В. у чалавека. Не в. сваім вушам* або *сваім вачам* (гаварыць, калі гутарка ідзе пра што-н. малаверагоднае). **2.** *у што* і *чаму.* Прымаць за праўду, лічыць верагодным. *В. у сны і прыметы.* **3.** *каму.* Цалкам давяраць. *Веру яго словам.*

**ВЕСЛАВА́ЦЬ**, вяслу́ю, вяслу́еш, вяслу́е; вяслу́й; *незак.* Грэбці вёсламі. ‖ *наз.* **веслава́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **вясля́рны**, -ая, -ае. *В. спорт.*

**ВЕСЛАВЫ́** *гл.* вясло[1].

**ВЕСНАВЫ́** *гл.* вясна.

**ВЕ́СНІЦЫ**, -ніц. **1.** Вароты ў двор або ў агарод, у поле. **2.** Плот з варотамі ў канцы вёскі (уст.). ‖ *прым.* **ве́снічны**, -ая, -ае.

**ВЕ́СНІЧКІ**, -чак. Вузкія дзверцы ў плоце, варотцы. ‖ *прым.* **ве́снічкавы**, -ая, -ае.

**ВЕСТАВЫ́**, -о́га, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.* Ардынарац, пасыльны.

**ВЕ́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Паведамленне, звестка. *В. аб прыездзе. Без вестак прапасці* (бясследна знікнуць). *Падаць пра сябе вестку* (паведаміць). ‖ *памянш.* **ве́стачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ВЕСТЫБУЛЯ́РНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **вестыбулярны апарат** (спец.) — орган у хрыбетных жывёлін і чалавека, які з'яўляецца часткай унутранага вуха і служыць для каардынацыі рухаў і захавання раўнавагі.

**ВЕСТЫБЮ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Вялікае памяшканне перад уваходам ва ўнутраныя часткі якога-н., пераважна грамадскага, будынка. *В. тэатра. В. метро.* ‖ *прым.* **вестыбю́льны**, -ая, -ае.

**ВЕ́СТЭРН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыгодніцкі фільм з жыцця першых пасяленцаў амерыканскага Захаду.

**ВЕ́СЦІ**, вяду́, вядзе́ш, вядзе́; вядзём, ведзяце́, вяду́ць; вёў, вяла́, вяло́; вядзі́; *незак.* **1.** *каго.* Памагаць ісці, суправаджаць. *В. хворага пад руку.* **2.** *каго-што.* Накіроўваць чый-н. рух; ісці на чале. *В. войска ў бой. В. каня за повад. В. самалёт. Добра вядзе машыну.* **3.** *што.* Пракладваць у пэўным напрамку. *В. шашу на Полацк. В. тэлеграфную лінію цераз раку.* **4.** *чым па чым.* Рухаць чым-н. па паверхні чаго-н. *В. ўказкай па карце. В. смыкам па струнах.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Мець той або іншы на-

прамак, служыць шляхам куды-н. *Дарога вяла ў лес.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., да чаго.* Мець сваім вынікам, цягнуць за сабой. *Гэта да дабра не вядзе.* **7.** *што.* Рабіць, выконваць, ажыццяўляць, падтрымліваць. *В. падлікі. В. назіранне. В. агонь* (страляць). *В. размову.* **8.** *што.* Кіраваць, загадваць чым-н. *В. хатнія справы. Гаспадарку в. — не барадой трэсці* (прыказка). *В. гурток. В. сход* (старшынстваваць). ◊ **Весці (размову, гутарку) да** *чаго-н.* — гаворачы (або робячы) што-н., мець на мэце што-н. **Весці рэй** (разм.) — быць завадатарам, верхаводзіць. ‖ *наз.* **вядзе́нне**, -я, *н.* (да 1—4 і 8 знач.). *У парадку вядзення* (сходу, пасяджэння: па ходу, у сувязі з правядзеннем).

**ВЕ́СЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., вядзе́цца; вёўся, вяла́ся, вяло́ся; вядзі́ся; *незак.* **1.** Адбывацца, ажыццяўляцца, праводзіцца. *Вядзецца барацьба за высокую якасць прадукцыі. Вядзецца шырокае жыллёвае будаўніцтва.* **2.** Гадавацца, даваць прыплод. *У нас свінні добра вядуцца.* **3.** *безас.* Быць звычаем, падтрымлівацца. *Так у нас здаўна вядзецца.*

**ВЕСЯЛЕ́Ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Станавіцца вясёлым, весялейшым. ‖ *зак.* **павесяле́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**ВЕСЯЛІ́ЦЦА**, -лю́ся, вясе́лішся, вясе́ліцца; *незак.* Весела праводзіць час. *Дзеці весяляцца ў садзе.*

**ВЕСЯЛІ́ЦЬ**, -лю́, вясе́ліш, вясе́ліць; *незак., каго-што.* Выклікаць вясёласць, радасць. *В. дзяцей. Песня вяселіць душу.* ‖ *зак.* **развесялі́ць**, -лю́, развясе́ліш, развясе́ліць; развясе́лены.

**ВЕСЯЛО́СЦЬ** *гл.* вясёлы.

**ВЕСЯЛУ́Н**, веселуна́, *мн.* веселуны́, веселуно́ў, *м.* (разм.). Вясёлы чалавек, забаўнік. ‖ *ж.* **весялу́ха**, -і, *ДМ* -лу́се, *мн.* -і, -лу́х.

**ВЕ́ТА**, *нескл., н.* (кніжн.). Забарона, адмена (якіх-н. рашэнняў). *Накласці в. на праект.*

**ВЕ́ТАХ**, -а, *м.* Месяц у апошняй квадры, на зыходзе. ‖ *памянш.* **веташо́к**, -шка́, *м.*

**ВЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Асобная лінія ў сістэме чыгунак, якая адыходзіць убок ад асноўнай чыгуначнай магістралі.

**ВЕ́ТЛІВЫ**, -ая, -ае. Ласкавы, далікатны, поўны прыязнасці, добразычлівасці. *В. чалавек. Ветлівае абыходжанне. Ветліва* (прысл.) *папрасіць.* ‖ *наз.* **ве́тлівасць**, -і, *ж.*

**В'ЕТНА́МЦЫ**, -аў, *адз.* -мец, -мца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва В'етнама. ‖ *ж.* **в'етна́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак. ‖ *прым.* **в'етна́мскі**, -ая, -ае.

**ВЕТРА...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову «вецер», напр.: *ветрасілавы, ветраўстойлівы.*

**ВЕ́ТРАВЫ́** *гл.* вецер.

**ВЕТРАГО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., неадабр.). Легкадумны, пусты чалавек. ‖ *ж.* **ветраго́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **ветраго́нскі**, -ая, -ае.

**ВЕ́ТРАЗЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Парус. *Бялее рыбацкі в.*

**ВЕ́ТРАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які суправаджаецца ветрам, з ветрам. *В. дзень. Сягоння ветрана* (безас.; у знач. вык.). **2.** *перан.* Легкадумны, пусты. *В. хлопец.* ‖ *наз.* **ве́транасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ВЕТРАНЫ́**, -а́я, -о́е. Які прыводзіцца ў рух ветрам. *В. млын.* ○ **Ветраная воспа** — часцей дзіцячая заразная хвароба, якая суправаджаецца буйным сыпам.

**ВЕТРАСІЛАВЫ́**, -а́я, -о́е. Які выкарыстоўвае энергію ветру. *Ветрасілавая ўстаноўка.*

**ВЕ́ТРАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* (разм.). Прасушвацца, праветрывацца.

**ВЕ́ТРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак., што.* Ачышчаць ад смецця на ветры (збожжа). *В. насенне.*

**ВЕТЭРА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Стары, бывалы воін. *В. Грамадзянскай вайны.* **2.** *перан., чаго.* Стары, заслужаны працаўнік, дзеяч у якой-н. галіне. *В. працы. В. навукі.* ‖ *ж.* **ветэра́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак (разм.). ‖ *прым.* **ветэра́нскі**, -ая, -ае.

**ВЕТЭРЫНА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па ветэрынарыі. ‖ *прым.* **ветэрына́рскі**, -ая, -ае.

**ВЕТЭРЫНА́РЫЯ**, -і, *ж.* Навука пра хваробы жывёл і іх лячэнне. ‖ *прым.* **ветэрына́рны**, -ая, -ае.

**ВЕ́ХАЦЬ**, -хця, *мн.* -хці, -хцяў, *м.* **1.** Мачалка з рагожы. **2.** Жмут, жменя (саломы, сена і пад.).

**ВЕ́ЦЕР**, ве́тру, *мн.* вятры́, вятро́ў, *м.* Рух паветра ў гарызантальным напрамку. *Моцны в. Спадарожны в. Паўднёвы в. Подых ветру. Стаяць на ветры* (там, дзе дзьме моцны вецер). ◊ **Кідаць словы на вецер** (разм.) — гаварыць упустую, дарэмна ці неабдумана. **Вецер у галаве** *ў каго* (разм., неадабр.) — пра легкадумнага чалавека. **Ветрам падшыты** або **падбіты** (разм.) — пра легкадумнага чалавека, а таксама пра адзенне без цёплай падкладкі. **Трымаць нос па ветры** — прыстасоўвацца да абставін. **Шукаць ветру ў полі** — пра дарэмныя пошукі. **Куды вецер дзьме** — прыстасоўвацца да большасці думак, поглядаў, густаў. ‖ *памянш.* **ве́трык**, -у, *м.* *З ветрыкам* (пра язду: вельмі хутка; разм.). ‖ *прым.* **ве́травы**, -ая, -ае *і* **ветравы́**, -а́я, -о́е (спец.). *Ве́травы подых. Ветравое шкло* (у аўтамашынах).

**ВЕ́ЧА**, -а, *н.* Народны сход у Старажытнай Русі і Беларусі гараджан для вырашэння грамадскіх спраў, а таксама месца такога сходу. *Полацкае в.* ‖ *прым.* **вечавы́**, -а́я, -о́е. *В. звон.*

**ВЕ́ЧАР**, -а, *мн.* вечары́ *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) ве́чары, вечаро́ў, *м.* **1.** Час сутак ад канца дня да надыходу ночы. *Зімовы в. Прыйшлі дамоў пад в.* **2.** Грамадскі вячэрні сход, прысвечаны якой-н. даце. *Урачысты в. В. сустрэчы з ветэранамі.* ‖ *памянш.* **вечаро́к**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **вячэ́рні**, -яя, -яе (да 1 знач.). *Вячэрняя школа.*

**ВЕ́ЧАРАМ**, *прысл.* У вячэрні час. ‖ *памянш.* **вечарко́м** (разм.). *В. забягу на хвіліну.*

**ВЕЧАРЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Вячэрняя гулянка з музыкай і танцамі. *Пайсці на вечарынку.*

**ВЕЧАРЭ́ЦЬ**, -э́е; *безас., незак.* Бліжыцца к вечару, надыходзіць (пра вечар). *Пачало в. Увосень рана вечарэе.* ‖ *зак.* **звечарэ́ць**, -э́е.

**ВЕ́ЧНА**, *прысл.* **1.** Бясконца, спрадвеку; на працягу вякоў. *Матэрыя існуе в. Жыць в. ў памяці народа.* **2.** Пастаянна, заўсёды. *Брат в. заняты.*

**ВЕЧНАЗЯЛЁНЫ**, -ая, -ае. Аб раслінах: круглы год з зялёным лісцем, іглічай.

**ВЕ́ЧНАСЦЬ**, -і, *ж.* Працяг часу без пачатку і канца; вельмі доўгі час. *Не бачыліся цэлую в.* (вельмі працяглы час; разм.). *Кануць у в.* (бясследна знікнуць).

**ВЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які існуе заўсёды, спрадвеку; які не перастае існаваць. *Вечная матэрыя. Вечныя снягі. Вечная слава героям.* **2.** Бестэрміновы. *Перадаць баявы сцяг на вечнае захаванне.* **3.** Які пастаянна паўтараецца. *Вечныя спрэчкі.* ◊ **Заснуць вечным сном** (кніжн.) — памерці.

**ВЕ́ШАЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Дошка або стойка з кручкамі, на якія вешаюць адзенне. **2.** Пятля, прышытая да адзення, за якую яго вешаюць. *Прышыць вешалку.* **3.** Планка з кручком, на якую вешаецца адзенне ў распраўленым па плячах выглядзе.

**ВЕ́ШАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто вешае людзей. **2.** Правіцель, які вызначаецца сваёй жорсткасцю і дэспатызмам.

**ВЕ́ШАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Канчаць жыццё самагубствам, павесіўшыся на пятлі, што зашморгваецца. ◊ **Вешацца на шыю** *каму* (разм.) — дамагацца ўзаемнасці. ‖ *зак.* **паве́сіцца**, -ве́шуся, -ве́сішся, -ве́сіцца.

**ВЕ́ШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *што.* Надаваць чаму-н. вісячае становішча. *В. аброць на крук.* **2.** *каго.* Караць смерцю праз павешанне. ‖ *зак.* **паве́сіць**, -ве́шу, -ве́сіш, -ве́сіць; -ве́шаны *і* **паве́шаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *наз.* **ве́шанне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **паве́шанне**, -я, *н.* (да 2 знач.). *Смерць праз павешанне.*

**ВЕШЧАВА́ЦЬ**, вяшчу́ю, вяшчу́еш, вяшчу́е; вяшчу́й; *незак., што* і *без дап.* **1.** Гаварыць, абвяшчаць (высок.). *В. аб надыходзе важнай падзеі.* **2.** Прадказваць, прадракаць. *В. цёплую вясну.*

**ВЕ́ЯЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Сельскагаспадарчая машына, якой ачышчаюць збожжа ад мякіны пасля малацьбы. **2.** Драўляны шуфлік для ручнога веяння збожжа пасля малацьбы.

**ВЕ́ЯЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто вее збожжа або працуе пры веялцы. ‖ *ж.* **ве́яльшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ВЕ́ЯННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* веяць. **2.** *перан.* З'яўленне новых думак, ідэй у разумовым жыцці грамадства. *Новае в. ў гісторыі.*

**ВЕ́ЯНЫ**, -ая, -ае. Ачышчаны веяннем. *Веянае жыта.*

**ВЕ́ЯЦЬ**, ве́ю, ве́еш, ве́е; вей; ве́яны; *незак.* **1.** *што.* Ачышчаць збожжа ад мякіны веялкай. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Дзьмуць, абдзімаць павевам. *Вее вецер. Цёплай вільгацію веяла* (безас.) *ад ракі. Ад яго слоў веяла* (безас.) *ласкай і клопатам* (перан.). ‖ *зак.* **праве́яць**, -е́ю, -е́еш, -е́е; -е́й; -е́яны (да 1 знач.) *і* **зве́яць**, -е́ю, -е́еш, -е́е; -е́й; -е́яны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **ве́янне**, -я, *н.*

**ВЁРСТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (спец.). **1.** *гл.* вярстаць. **2.** Звярстаны набор, а таксама яго адбітак. *Чытаць вёрстку.* ‖ *прым.* **вёрстачны**, -ая, -ае.

**ВЁРТКІ**, -ая, -ае. Здольны да хуткіх і спрытных рухаў. ‖ *наз.* **вёрткасць**, -і, *ж.*

**ВЁСЕЛЬНЫ** *гл.* вясло[1].

**ВЁСКА**, -і, *ДМ* вёсцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** Сельскае паселішча. *Жыць у вёсцы.* **2.** *адз.* Сельская мясцовасць. *Паехаў працаваць на вёску.* **3.** *адз.* Жыхары вёскі, вясковае насельніцтва. *Культурны рост вёскі.* ‖ *памянш.* **вёсачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **вяско́вы**, -ая, -ае. *Вясковыя ростані.*

**ВЁСЛАВЫ** *гл.* вясло[1].

**ВІБРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Частка прыбора, апарата, у якіх могуць узбуджацца рытмічныя ваганні. ‖ *прым.* **вібра́тарны**, -ая, -ае.

**ВІБРА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). **1.** Вагальны рух пруткага цела; дрыжанне. **2.** Ваганне вышыні току якога-н. гуку. ‖ *прым.* **вібрацы́йны**, -ая, -ае.

**ВІБРЫ́РАВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -руе; *незак.* (кніжн.). Знаходзіцца ў стане вібрацыі. *Станок вібрыруе. Голас вібрыруе* (перан.).

**ВІВІСЕ́КЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). Разрэз цела жывых жывёл з навуковай мэтай.

**ВІГО́НЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Паўднёваамерыканская млекакормячая жывёліна сямейства лам з тонкай і мяккай шэрсцю, а таксама шэрсць гэтай жывёліны і тканіна з яе. **2.** Род пражы з сумесі баваўны з грубай шэрсцю, а таксама тканіна з яе. ‖ *прым.* **віго́невы**, -ая, -ае.

**ВІД**[1], -у, *М* аб ві́дзе, на віду́, *м.* **1.** Тое, што адкрываецца перад вачамі, перспектыва, а таксама адлюстраванне яе. *В. на мора. Альбом з відамі Каўказа.* **2.** Тое, што і *выгляд* (у 1 знач.). *Спалоханы в. твару. Стрэльба страціла ўжо былы колер і в.* **3.** *мн., перан.* Меркаванні; намер. *Віды на ўраджай. Віды на будучае.* ◊ **Паставіць на від** *каму* — зрабіць папераджальную заўвагу, вымову. ‖ *прым.* **відавы́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.). *Відавыя паштоўкі.*

**ВІД**[2], -у, *М* аб ві́дзе, *мн.* ві́ды, -аў, *м.* **1.** Падраздзяленне ў сістэматызацыі, якое ўваходзіць у састаў вышэйшага раздзела — роду. *В. раслін.* **2.** Разнавіднасць, тып. *В. паліва.* ‖ *прым.* **відавы́**, -а́я, -о́е.

**ВІДАВО́ЧНА.** **1.** *пабочн. сл.* Напэўна, відаць, мабыць. *Ён, в., да нас сёння не прыедзе.* **2.** *прысл.* Яўна, прыметна; адкрыта. *Яны робяць усё в.* **3.** *безас., у знач. вык.* Ясна, бясспрэчна. *Было в., што чалавеку не хапае вопыту ў гэтай справе.*

**ВІДАВО́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Сведка якога-н. здарэння, падзеі. ‖ *ж.* **відаво́чніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ВІДАВО́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Яўны, прыметны. *Відавочная мана.* **2.** Бясспрэчны. *В. факт.* ‖ *наз.* **відаво́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ВІДАВЫ́** *гл.* від[1–2].

**ВІДАЗМЯНЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* відазмяніць. **2.** Разнавіднасць чаго-н.

**ВІДАЗМЯНІ́ЦЦА**, -змянюся, -зме́нішся, -зме́ніцца; *зак.* Набыць або страціць якія-н. прыватныя асаблівасці, прыметы. ‖ *незак.* **відазмяня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ВІДАЗМЯНІ́ЦЬ**, -змяню́, -зме́ніш, -зме́ніць; -зме́нены; *зак., што.* Унесці якія-н. змены, часткова змяніць. *В. план.* ‖ *незак.* **відазмяня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **відазмяне́нне**, -я, *н.*

**ВІДАРЫ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прадмет, знак, сімвал і пад., якія ўвасабляюць пэўную ідэю. *В. герба на сцягу. В. чайніка на шыльдзе.*

**ВІДА́ЦЬ**, *у форме інф., у знач. вык.* **1.** Можна бачыць, разгледзець. *Адсюль усё добра в. Блізка в., ды далёка дыбаць* (прыказка). **2.** Можна разумець. *Сэнс байкі добра в.* **3.** Быць відавочным, вынікаць. *З гэтага в., што работа скончана ў тэрмін.* **4.** *у знач. пабочн. сл.* Як здаецца, мабыць, напэўна. *В., прыйдзецца ехаць аднаму.* ◊ **Ад зямлі не відаць** (разм.) — вельмі маленькага росту. **Відам не відаць** (разм.) — ніякіх прымет, нідзе не відаць. **Па ўсім відаць** або **як відаць** — напэўна, відавочна.

**ВІДАШУКА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Прыстасаванне ў фота- і кінаапаратах для вызначэння межаў здымка.

**ВІДНАВА́ТА**, *безас., у знач. вык.* Не зусім цёмна, крыху відно.

**ВІДНАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Не зусім цёмны, крыху светлы. *Віднаватая ноч.*

**ВІДНАТА́**, -ы́, *ДМ* -нацэ́, *ж.* Пра наяўнасць вялікай колькасці святла дзе-н. *Такая в., хоць іголкі збірай.*

**ВІДНЕ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́ецца; *незак.* Быць відным, быць у полі зроку. *Удалечыні віднелася возера.*

**ВІДНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *незак.* **1.** *безас.* Світаць; святлець. *На ўсходзе ўжо віднела. Пачынае в.* **2.** Віднецца, станавіцца відным, бачным. *Уперадзе віднее жытнёвае поле.* ‖ *зак.* **паві́дне́ць**, -е́е (да 1 знач.).

**ВІДНО́**[1], *безас., у знач. вык.* **1.** Пра наяўнасць дастатковага святла, асвятлення дзе-н. *На вуліцы ўжо было в.* **2.** Тое, што і *відаць* (у 1 і 3 знач.). *З-за пылу было не в. дарогі.*

**ВІДНО́**[2], -а́, *н.* Світанне, досвітак. *Маці ўстала яшчэ да відна. Ад відна да цямна* (з усходу да заходу сонца, з ранку да вечара).

**ВІ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Значны, важны, прыметны або выдатны, вядомы. *Віднае службовае становішча. В. вучоны.* **2.** Рослы, статны. *В. хлопец.*

**ВІДНЫ́**, -а́я, -о́е; відзён, відна́, відно́; *мн.* відны́. **1.** толькі *поўн. ф.* Добра асветлены, не цёмны. *Відная ноч.* **2.** пераважна *кар. ф.* Даступны зроку, бачны. *Дом відзён здалёку.*

**ВІДО́ВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *н.* **1.** Тое, што паўстае перад вачамі, з'яўляецца прадметам агляду. *Незвычайнае в.* **2.** Тэатральнае або тэатралізаванае прадстаўленне. *Масавыя відовішчы.* ‖ *прым.* **відо́вішчны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ВІДУ́К**, -у́, *м.* Дзікарослы мак, мак-самасейка.

**ВІДУ́ШЧЫ**, -ая, -ае. Які мае зрок, бачыць або здольны бачыць. *В. чалавек. Адзінае відушчае вока.*

**ВІДЭА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да электрычных сігналаў, якія выклікаюць адлюстраванне (відэасігналам), напр.: *відэазапіс, відэамагнітафон, відэатэлефон;* 2) які мае адносіны да відэазапісу, напр.: *відэаплёнка, відэафільм, відэаінжынер.*

**ВІДЭАКЛІ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тэлевізійны рэкламны ролік — эстрадная попабо рок-песня, якая суправаджаецца разнастайнымі адлюстраваннямі на экране.

**ВІДЭ́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* Сталовы прыбор у выглядзе ручкі з доўгімі зубамі. ‖ *прым.* **віддэ́лечны**, -ая, -ае.

**ВІЁЛА**[1], -ы, *мн.* -ы, -ёл, *м.* Старадаўні смычковы музычны інструмент у выглядзе скрыпкі.

**ВІЁЛА**[2], -ы, *мн.* -ы, -аў, *м.* Род раслін сямейства фіялкавых.

**ВІЖАВА́ЦЬ**, -жу́ю, -жу́еш, -жу́е; -жу́й; *незак.* (разм.). Сачыць, дапільноўваць. ‖ *наз.* **віжава́нне**, -я, *н.*

**ВІ́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, віз, *ж.* **1.** Паметка службовай асобы на дакуменце. *Паставіць сваю візу.* **2.** Дазвол на ўезд у краіну, выезд ці праезд цераз яе, а таксама паметка ў пашпарце ў знак такога дазволу. ‖ *прым.* **ві́завы**, -ая, -ае.

**ВІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -заваны; *незак., што.* Ставіць на чым-н. візу. *В. пашпарт.* ‖ *зак.* **завізава́ць**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны. ‖ *наз.* **візава́нне**, -я, *н.*

**ВІЗАВІ́** (кніжн.). **1.** *прысл.* Твар у твар, адзін насупраць другога. *Сядзець в.* **2.** *наз. нескл., м. і ж.* Той, хто знаходзіцца насупраць. *Мой в.*

**ВІЗІ́ГА**, -і, *ДМ* -зі́зе, *ж.* Прадукт, які выпрацоўваецца са спіннай струны (хорды) асятровых рыб. *Пірагі з візігай.*

**ВІЗІ́Р**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Прыбор для візіравання; відашукальнік. **2.** Частка прыцэльнага прыстасавання з вузкай шчылінай. ‖ *прым.* **візі́рны**, -ая, -ае.

**ВІЗІ́Р**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У некаторых краінах Блізкага Усходу: міністр, вышэйшы саноўнік.

**ВІЗІ́РАВАЦЬ**[1], -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* Паставіць (ставіць) візу на чым-н. *В. праект пастановы.* ‖ *зак.* **завізі́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны. ‖ *наз.* **візі́раванне**, -я, *н.*

**ВІЗІ́РАВАЦЬ**[2], -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Навесці (наводзіць) аптычны ці вугламерны прыбор на які-н. пункт. ‖ *наз.* **візі́раванне**, -я, *н.*

**ВІЗІ́Т**, -у, *М* -зіце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Наведванне каго-н., пераважна афіцыйнае. *Зрабіць в. Прыбыць з візітам. В. урача.* ‖ *прым.* **візі́тны**, -ая, -ае. *Візітная картка. В. касцюм.*

**ВІЗІ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Спецыяльна аддрукаваная картка з прозвішчам і званнем каго-н. (разм.). **2.** Аднабортны кароткі сурдут з закругленымі поламі. **3.** Мужчынская ручная сумачка.

**ВІЗІЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто прыходзіць з візітам. ‖ *прым.* **візіцёрскі**, -ая, -ае (разм.).

**ВІЗУА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які адносіцца да непасрэднага зрокавага ўспрымання або назірання з дапамогай аптычных прылад. *Візуальныя назіранні.* ‖ *наз.* **візуа́льнасць**, -і, *ж.*

**ВІ́КА**, -і, *ДМ* віцы, *ж.* Аднагадовая кармавая расліна сямейства бабовых. ‖ *прым.* **ві́кавы**, -ая, -ае.

**ВІКА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* У праваслаўнай царкве: памочнік епіскапа, епіскап без епархіі; у пратэстанцкай царкве: памочнік святара.

**ВІ́КІНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Старажытнаскандынаўскі марскі воін, удзельнік марскіх паходаў.

**ВІКО́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дваранскі тытул у старой Францыі, у Англіі, сярэдні паміж тытуламі барона і графа, а таксама асоба з такім тытулам. ‖ *ж.* **віканта́са**, -ы, *мн.* -ы, -тэс.

**ВІКТАРЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́н, *ж.* Гульня ў адказы на пытанні з розных галін ведаў, звычайна аб'яднаных агульнай тэмай. *Літаратурная в. Музычная в.*

**ВІ́ЛА**, -ы, *мн.* -ы, віл, *ж.* Багаты дом з садам, паркам (звычайна загарадны).

**ВІ́ЛАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Куток каля печы, дзе стаяць вілкі, качарга і іншыя кухонныя прылады; качарэжнік. **2.** Дзяржанне, ручка вілак, якімі дастаюць гаршкі з печы.

**ВІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Назва розных дэталей, прыстасаванняў з раздвоеным канцом. *Штэпсельная в.* **2.** Такое становішча пры стральбе, калі адзін снарад падае бліжэй, а другі далей ад цэлі (спец.). *Узяць батарэю ў вілку.* ‖ *прым.* **ві́лачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ВІ́ЛКІ**, -лак. **1.** Доўгая драўляная ручка з двума металічнымі паўкруглымі рагамі на канцы, пры дапамозе якой ставяць у печ і вымаюць з печы гаршкі, чыгункі. **2.** Тое, што і *вілы.* ‖ *прым.* **ві́лачны**, -ая, -ае.

**ВІ́ЛЫ**, віл *і* -аў. Сельскагаспадарчая прылада ў выглядзе некалькіх доўгіх зубоў на доўгім дзяржанні. *Падхопліваць на в. сена.* ◊ **Віламі па вадзе пісана** — пра што-н. мала магчымае. ‖ *прым.* **ві́лавы**, -ая, -ае.

**ВІЛЬГАТНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ée; *незак.* Рабіцца вільготным. *Паветра пад вечар вільгатнее.* ‖ *зак.* **звільгатне́ць**, -ée *і* **павільгатне́ць**, -ée.

**ВІ́ЛЬГАЦЬ**, -і, *ж.* Сырасць, вада, якая змяшчаецца ў чым-н. *Паветра насычана вільгаццю.*

**ВІЛЬГО́ТНАСЦЬ**, -і, *ж.* Наяўнасць вільгаці. *В. глебы, паветра.* ‖ *прым.* **вільго́тнасны**, -ая, -ае (спец.). *В. рэжым.*

**ВІЛЬГО́ТНЫ**, -ая, -ае. Насычаны вільгаццю, мокры, сыры. *Вільготная зямля.*

**ВІ́ЛЬЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Верхні стык двух бакоў страхі; канёк. ‖ *прым.* **ві́льчыкавы**, -ая, -ае.

**ВІЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* **1.** *чым.* Хістаць, паварочваць з боку ў бок. *В. хвастом.* **2.** Рухацца па звілістай лініі або рабіць крутыя павароты. *Дарога віляла між скал.* **3.** *перан.* Вагацца ў разважаннях, ухіляцца ад прамога адказу (разм.). *Трэба гаварыць праўду, а не в.* ‖ *аднакр.* **вільну́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́ (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **віля́нне**, -я, *н.*

**ВІНА́**, -ы́, *мн.* ві́ны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) віны́, він, *ж.* **1.** Нядобры ўчынак, правіннасць. *Разумець сваю віну. Даказаць віну.* **2.** *адз.* Прычына, крыніца чаго-н. (неспрыяльнага). *Па чыёй-н. віне* (гэта значыць з-за каго-н.).

**ВІНАВА́ЛЬНЫ**. У выразе: **вінавальны склон** — склон, які адказвае на пытанні: каго? што?

**ВІНАВА́ТЫ**, -ая, -ае; -ва́т, -а. **1.** Які правініўся ў чым-н., зрабіў злачынства. *Прызнаць вінаватым. В. ў крадзяжы. Я вінавата перад вамі.* **2.** *поўн. ф.* Які выяўляе ўсведамленне сваёй віны. *В. голас. Вінавата* (прысл.) *паглядзець.* **3.** Які вінен каму-н., мае доўг. *Я яму в. трыццаць рублёў.* ‖ *наз.* **вінава́тасць**, -і, *ж.*

**ВІНАВА́ЦІЦЦА**, -ва́чуся, -ва́цішся, -ва́ціцца; *незак.* Дакараць сябе, прызнаючы якую-н. віну, каяцца. ‖ *зак.* **павінава́ціцца**, -ва́чуся, -ва́цішся, -ва́ціцца.

**ВІНАВА́ЦІЦЬ**, -ва́чу, -ва́ціш, -ва́ціць; *незак., каго.* Абвінавачваць, лічыць вінаватым; асуджаць. *Ва ўсім вінавацію толькі іншых.*

**ВІНАГРА́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Павойная паўднёвая кустовая расліна з салодкімі буйнымі ягадамі, а таксама ягады гэтай расліны, якія ідуць у ежу і на выраб віна. ‖ *прым.* **вінагра́дны**, -ая, -ае. *В. сок.*

**ВІНАГРА́ДАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца вінаградарствам (у 1 знач.). ‖ *прым.* **вінагра́дарскі**, -ая, -ае.

**ВІНАГРА́ДАРСТВА**, -а, *н.* **1.** Развядзенне вінаграду як галіна раслінаводства. **2.** Раздзел сельскагаспадарчай навукі аб развядзенні вінаграду.

**ВІНАГРА́ДЗІНА**, -ы, *мн.* -ы, -дзін, *ж.* Ягада вінаграду. ‖ *памянш.* **вінагра́дзінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**ВІНАГРА́ДНІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Участак, засаджаны вінаградам, вінаградная плантацыя. ‖ *прым.* **вінагра́днікавы**, -ая, -ае.

**ВІНАКУ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца вінакурэннем.

**ВІНАКУРЭ́ННЕ**, -я, *н.* Вытворчасць спірту і гарэлкі са збожжа, з бульбы, буракоў і інш. ‖ *прым.* **вінаку́рны**, -ая, -ае. *В. завод.*

**ВІНАРО́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па вінаробстве.

**ВІНАРО́БСТВА**, -а, *н.* Выраб віна з вінаграду ці іншых ягад і пладоў. ‖ *прым.* **вінаро́бны**, -ая, -ае *і* **вінаро́бчы**, -ая, -ае.

**ВІНАТЭ́КА**, -і, *ДМ* -тэ́цы, *мн.* -і, -тэ́к, *ж.* Збор калекцыйных він. ‖ *прым.* **вінатэ́чны**, -ая, -ае.

**ВІНАЧЭ́РП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У старажытнасці: службовая асоба, якая загадвала віннымі склепамі, разлівала і разносіла пітво на банкетах.

**ВІНЕГРЭ́Т**, -у, *М* -грэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Халодная страва, прыгатаваная з дробна нарэзаных кавалачкаў агародніны, мяса ці рыбы, яек з соусам, алеем і воцатам. **2.** *перан.* Сумесь разнастайных думак і паняццяў. *У галаве в.* (усё перамяшалася, мешаніна розных поглядаў, думак; разм.). ‖ *прым.* **вінегрэ́тны**, -ая, -ае.

**ВІ́ННЫ**[1] *гл.* віно.

**ВІ́ННЫ**[2], -ая, -ае; ві́нен, ві́нна (разм.). Тое, што і *вінаваты* (у 1 і 3 знач.).

**ВІНО́**, -а́, *мн.* ві́ны, він *і* -аў, *н.* Алкагольны напітак, прыгатаваны з ягад, садавіны. *Чырвонае в. Вінаградныя віны. Сталовае в.* ‖ *памянш.* **вінцо́**, -а́, *н.* (разм.). ‖ *прым.* **ві́нны**, -ая, -ае. *В. пах. В. склеп.* ○ **Вінныя ягады** — сушаныя плады фігавага дрэва.

**ВІНО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто вінаваты ў чым-н., хто з'яўляецца прычынай, крыніцай чаго-н. *В. бедства. В. урачыстасці* (жарт.). ‖ *ж.* **вінspecific**

мешчаны ў герметычным кажуху. ‖ *прым.* **вінчэ́старны**, -ая, -ае.

**ВІНШАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто віншуе каго-н., прыходзіць з віншаваннем. ‖ *ж.* **віншава́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **віншава́льніцкі**, -ая, -ае.

**ВІНШАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які ўтрымлівае віншаванні. *Віншавальная паштоўка.*

**ВІНШАВА́ЦЬ**, -шу́ю, -шу́еш, -шу́е; -шу́й; -шава́ны; *незак., каго з чым.* Вітаць з выпадку чаго-н. прыемнага, радаснага. *В. са святам, з юбілеем.* ‖ *зак.* **павіншава́ць**, -шу́ю, -шу́еш, -шу́е; -шу́й; -шава́ны. ‖ *наз.* **віншава́нне**, -я, *н.*

**ВІ́НЫ**, -аў, *адз.* ві́на, -ы, *ж.* Масць у ігральных картах, тое, што і *пікі.* ‖ *прым.* **віно́вы**, -ая, -ае.

**ВІНЬЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Аздабленне ў выглядзе невялікага малюнка, арнамента на загаловачным лісце кнігі, у пачатку або канцы раздзела. ‖ *прым.* **вінье́тачны**, -ая, -ае.

**ВІР**, -у, *М* у віры́, *мн.* віры́, -о́ў, *м.* **1.** Кругавы, лейкападобны рух вады на рацэ, які ўзнікае ад сутыкнення сустрэчных плыней. *В. бурліў і пераліваўся. В. падзей* (перан.). **2.** Глыбокае месца ў рацэ з ямай, дзе адбываецца завіхрэнне плыні. ◊ **У віру на калу** (разм.) — 1) пра няўстойлівае, няпэўнае жыццё; 2) далёка, невядома дзе. **Хоць у вір галавой** (разм.) — пра цяжкае, бязвыхаднае становішча. ‖ *памянш.* **віро́к**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* ‖ *прым.* **віравы́**, -а́я, -о́е. *Віравая вада.*

**ВІ́РА**[1], -ы, *ж.* У старажытныя часы: грашовы штраф за забойства ці калецтва вольнага чалавека.

**ВІ́РА**[2], *выкл.* У мове будаўнікоў, партовых грузчыкаў і інш.: падымай уверх!; *процiл.* майна.

**ВІРАВА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Тое, што і *чайнворд.* ‖ *прым.* **вірава́начны**, -ая, -ае.

**ВІРАВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ру́е; *незак.* Утвараць віры, круціць, бурліць. *Вада віруе ля камянёў. Жыццё віруе вакол* (перан.). ‖ *наз.* **вірава́нне**, -я, *н.*

**ВІРА́Ж**[1], -у́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (спец.). **1.** Палёт самалёта з крэнам па крузе або паварот па крывой аўтамабіля, веласіпеда. *Крутыя віражы.* **2.** У вела- і мотаспорце: нахілены паварот спартыўнай дарожкі. ‖ *прым.* **віра́жны**, -ая, -ае.

**ВІРА́Ж**[2], -у, *м.* (спец.). Хімічны раствор, у якім прамываюць аддрукаваны фатаграфічны здымак для надання яму пэўнага колеру. ‖ *прым.* **віра́жны**, -ая, -ае.

**ВІРЛАВО́КІ**, -ая, -ае. З вялікімі лупатымі вачамі. ‖ *наз.* **вірлаво́касць**, -і, *ж.*

**ВІРЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Бурлівы, бурны, неспакойны. *В. паток. Вірлівая маладосць* (перан.). ‖ *наз.* **вірлі́васць**, -і, *ж.*

**ВІРО́К**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* **1.** *гл.* вір. **2.** Прылада для звівання нітак у клубок.

**ВІРТУО́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто дасканала валодае тэхнікай свайго мастацтва, а таксама наогул сваёй справы.

**ВІРТУО́ЗНЫ**, -ая, -ае. Уласцівы віртуозу, тэхнічна дасканалы. *Віртуознае выкананне.* ‖ *наз.* **віртуо́знасць**, -і, *ж.*

**ВІ́РУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Найдрабнейшая няклетачная часціца, што размнажаецца ў жывых клетках і выклікае заразнае захворванне. *В. шаленства. В. індывідуалізму* (перан.). **2.** У інфарматыцы: спецыяльная праграма, якая выклікае непаладкі ў рабоце камп'ютара. ‖ *прым.* **ві́русны**, -ая, -ае. *В. грып.*

**ВІРУСАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел мікрабіялогіі, які вывучае вірусы. ‖ *прым.* **вірусалагі́чны**, -ая, -ае.

**ВІРЫ́СТЫ**, -ая, -ае. У якім многа віроў. *Вірыстая рака.* ‖ *наз.* **віры́стасць**, -і, *ж.*

**ВІРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́цца; *незак.* **1.** Круціцца, утвараць віры (пра ваду). *Вада вірылася вакол вярбы.* **2.** *перан.* Паяўляцца ў вялікай колькасці, беспарапыннай чарадой. *Думкі вірацца ў галаве.*

**ВІРЫ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́ць; *незак.* Тое, што і *віраваць.*

**ВІ́СЕЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, павешаны на вісельні. ◊ **Гумар вісельніка** — вельмі змрочны гумар.

**ВІ́СЕЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* Два слупы (або слуп) з перакладзінай — прыстасаванне для пакарання смерцю праз павешанне; шыбеніца. ‖ *прым.* **ві́сельны**, -ая, -ае.

**ВІСЕ́ЦЬ**, вішу́, вісі́ш, вісі́ць; вісі́м, вісіце́, вася́ць; вісі́; *незак.* **1.** Будучы прымацаваным да чаго-н., знаходзіцца ў вертыкальным становішчы без апоры. *Люстра вісіць над сталом. Аб'ява вісіць на дзвярах. Капялюш вісіць на вешалцы. Самалёты вісяць над полем бою* (перан.: лятаюць, кружачыся). *Сукенка з аднаго боку вісіць* (спадае, не аблягае фігуру). *В. у паветры* (перан.: знаходзіцца ў няпэўным становішчы). *В. на тэлефоне* (перан.: часта і доўга гаварыць па тэлефоне; разм.). **2.** Выдавацца, выступаць уперад якой-н. сваёй часткай, навісаць. *Скала вісела над дарогай. Бяда вісела над галавой* (перан.). ◊ **Вісець над каркам** (разм.) — дакучаць каму-н. **Вісець на валаску** (разм.) — знаходзіцца ў небяспечным становішчы. **Вісець на карку** (разм., неадабр.) — быць на ўтрыманні ў каго-н.

**ВІСК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Высокі пранізлівы крык, а таксама падобны гук, утвораны якім-н. прадметам. *В. парасяці. В. пілы.*

**ВІ́СКАТ**, -у, *М* -каце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *віск.*

**ВІСКАТА́ЦЬ**, -качу́, -ко́чаш, -ко́ча; -качы́; *незак.* (разм.). Пранізліва крычаць, утвараць высокія пранізлівыя гукі.

**ВІ́СКІ**, *нескл., н.* Моцная англійская і амерыканская гарэлка.

**ВІСКЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Пранізлівы, з віскам. *В. крык.* **2.** Які часта вішчыць. *Вісклівае парася.* ‖ *наз.* **вісклі́васць**, -і, *ж.*

**ВІ́СКНУЦЬ** *гл.* вішчаць.

**ВІСКО́ЗА**, -ы, *ж.* **1.** Студзяністая клейкая цэлюлозная маса, з якой вырабляецца штучны шоўк, цэлафан і пад. **2.** Штучны шоўк. ‖ *прым.* **віско́зны**, -ая, -ае. *Віскознае валакно.*

**ВІСЛАВУ́ХІ**, -ая, -ае. З абвіслымі вушамі. *В. сабака.* ‖ *наз.* **віславу́хасць**, -і, *ж.*

**ВІ́СМУТ**, -у, *М* -муце, *м.* Хімічны элемент — крохкі серабрыста-белы метал. ‖ *прым.* **ві́смутавы**, -ая, -ае.

**ВІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; віс, -сла *і* ві́снуў, -нула; -ні; *незак.* **1.** Апускацца ўніз, прымаючы вісячае становішча, звісаць. *Валасы віснуць на лоб. Туман вісне* (перан.) *над балотам.* **2.** *перан., на кім,* таксама **віснуць на шыі** *у каго.* Ліпнуць да каго-н. (разм.). *Дзеці так і віснуць на ім.* ‖ *зак.* **паві́снуць**, -ну, -неш, -не; -ві́с, -сла *і* -ві́снуў, -нула; -ні *і* **заві́снуць**, -ну, -неш, -не; -ві́с, -сла *і* -ві́снуў, -нула; -ні.

**ВІСТ**, -а, *М* -сце, *м.* Род карцёжнай гульні.

**ВІ́СУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (лаянк.). Свавольнік, гарэза, распуснік.

**ВІСЯ́ЧЫ**, -ая, -ае. Прыстасаваны так, каб вісець. *В. замок. В. мост.*

**ВІТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з прывітаннем. *В. паклон. В. жэст.*

**ВІТАМІ́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Арганічнае рэчыва, неабходнае для нармальнай жыццядзейнасці жывых арганізмаў, а таксама прэпарат, які ўтрымлівае такія рэчывы. ‖ *прым.* **вітамі́нны**, -ая, -ае, **вітамі́навы**, -ая, -ае *і* **вітаміно́зны**, -ая, -ае. *Вітамінная (вітамінавая) лабараторыя. Вітамінозны тлушч.*

**ВІТА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* вітацца, вітаць. **2.** *мн.* -і, -яў. Прывітанне. *Слаць в.* ‖ *прым.* **віта́льны**, -ая, -ае. *В. паклон.*

**ВІТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* Вітаць адзін аднаго пры сустрэчы. *В. за руку.* ‖ *зак.* **павіта́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **прывіта́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **віта́нне**, -я, *н.*

**ВІТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што.* **1.** Звяртацца да каго-, чаго-н. з прывітаннем. *В. знаёмага. В. дэлегатаў канферэнцыі. В. гасцей. Вітаю вас!* **2.** *перан.* Ухваляць, выказваць адабрэнне чаго-н. *В. прапанову.* **3.** Віншаваць. *В. з надыходзячым святам.* ‖ *зак.* **павіта́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **прывіта́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **віта́нне**, -я, *н.*

**ВІ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *м.* Скручаны лазовы ці бярозавы дубец, якім прывязваюць, прымацоўваюць што-н. ‖ *прым.* **ві́тачны**, -ая, -ае.

**ВІТКО́ВЫ**[1], -ая, -ае. Здольны абвівацца вакол чаго-н., павойны. *Вітковыя расліны.*

**ВІТКО́ВЫ**[2] *гл.* віток.

**ВІТО́К**, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* **1.** Адзін абарот спіралі. *В. спружыны.* **2.** Тое, што навіта ў выглядзе спіралі. *В. абмоткі.* **3.** Пры палёце: адзін абарот на арбіце. *В. касмічнага карабля вакол Зямлі.* ‖ *прым.* **вітко́вы**, -ая, -ае.

**ВІТРА́Ж**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Узор са шкла рознага колеру (у вокнах, дзвярах). ‖ *прым.* **вітра́жны**, -ая, -ае.

**ВІТРЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́н, *ж.* Месца за акном магазіна, зашклёная шафа або скрынка для паказу розных тавараў. *Вітрыны магазінаў.* ‖ *прым.* **вітры́нны**, -ая, -ае.

**ВІТУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (спец.). Прыстасаванне, на якое намотваюць пражу.

**ВІ́ХАР** *гл.* віхор[1].

**ВІХЛЯ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Які хістаецца з боку ў бок у час руху. *Віхлявая паходка.*

**ВІХЛЯ́СТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які хістаецца з боку ў бок (пра чалавека і яго рухі). **2.** Звілісты, пакручасты. *Віхлястыя сцежкі.*

**ВІХЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* (разм.). Рухацца, хістаючыся з боку ў бок. *В. пад цяжарам ношы.*

**ВІХЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* (разм.). Рухацца няроўна, хістаючыся з боку ў бок. *Кола віхляе. В. пры хадзьбе.*

**ВІХО́Р**[1], -хра́, *мн.* -хры́, -хро́ў *і* **ВІ́ХАР**, ві́хру, *мн.* ві́хры, ві́храў, *м.* Імклівая кругавая плынь ветру. *Снежны в. В. падзей* (перан.). *Імчацца віхрам* (прысл.). ‖ *прым.* **віхравы́**, -а́я, -о́е.

**ВІХО́Р**[2], -хра́, *мн.* -хры́, -хро́ў, *м.* Узнятая ўверх пасма валасоў. *Прыгладзіць віхры.*

**ВІХРА́СТЫ**, -ая, -ае (разм.). З віхрамі. *В. хлапчук.*

**ВІХРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́цца; *незак.* Узнімацца, кружыцца віхрам. *Віхрыцца пыл.*

**ВІХУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ху́р, *ж.* **1.** Бура, завіруха (разм.). **2.** Імклівы віхравы рух (паэт.). ‖ *прым.* **віху́рны**, -ая, -ае.

**ВІЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* **1.** Прут, дубец. **2.** *зб.* Скручаная лаза, якой вяжуць плыты.

**ВІЦМУНДЗІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У дарэвалюцыйнай Расіі: форменны сурдут цывільных чыноўнікаў. ‖ *прым.* **віцмундзі́рны**, -ая, -ае.

**ВІ́ЦЦА**, уюся, уе́шся, уе́цца; уёмся, уяце́ся, ую́цца; ві́ўся, віла́ся, віло́ся; ві́ся; *незак.* **1.** Расці завіткамі. *Хмель уецца вакол дрэва. Валасы ўюцца.* **2.** Рабіць звілістыя рухі або мець звілісты напрамак. *Паміж гор вілася рэчка.* **3.** Лятаючы, кружыцца. *Пчолы ўюцца роем.*

**ВІЦЬ**, ую́, уе́ш, уе́; уём, уяце́, ую́ць; віў, віла́, віло́; ві; ві́ты, *што.* Выраблящь, скручваючы, сплятаючы або плетучы. *В. вяроўкі. В. вянкі. В. гняздо.* ◊ **З ветру вяроўкі віць** (разм., неадабр.) — гаварыць што-н. беспадстаўнае, выдумляць. ‖ *зак.* **звіць**, саўю́, саўе́ш, саўе́; саўём, саўяце́, саўю́ць; звіў, звіла́, звіло́; зві; зві́ты. ‖ *наз.* **віццё**, -я́, *н.*

**ВІЦЭ-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. намеснік, напр.: *віцэ-губернатар, віцэ-консул, віцэ-прэзідэнт.*

**ВІ́ЦЭ-АДМІРА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Другое адміральскае званне, а таксама асоба, што носіць гэтае званне. ‖ *прым.* **ві́цэ-адміра́льскі**, -ая, -ае.

**ВІ́ЦЯЗЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* У Старажытнай Русі: храбры воін, асілак. *Слаўныя віцязі.*

**ВІЧА́НІШЧА**, -а, *н.* Поле, з якога сабралі ўраджай вікі.

**ВІШНЁЎКА**, -і, *ДМ* -нёўцы, *мн.* -і, -нёвак, *ж.* Вішнёвая наліўка або настойка.

**ВІ́ШНЯ**, -і, *мн.* -і, -шань *і* -шняў, *ж.* Садова-ягаднае дрэва з сакавітымі ядомымі цёмна-чырвонымі костачкавымі пладамі, а таксама плод гэтага дрэва. ‖ *памянш.* **ві́шанька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* ‖ *прым.* **вішнёвы**, -ая, -ае. *Вішнёвае варэнне. В. колер.*

**ВІШНЯ́К**, -у́, *м., зб.* Вішнёвыя дрэвы, вішнёвы зараснік.

**ВІШЧА́ЦЬ**, -шчу́, -шчы́ш, -шчы́ць; -шчы́м, -шчыце́, -шча́ць; -шчы́; *незак.* Віскліва крычаць, утвараць віск. *Парася вішчыць. Піла вішчыць.* ‖ *аднакр.* **ві́скнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **вішча́нне**, -я, *н.*

**ВІЯДУ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Мост над ярам, цяснінай або цераз дарогу, чыгунку. ‖ *прым.* **віяду́чны**, -ая, -ае.

**ВІЯЛАНЧЭЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на віяланчэлі. ‖ *ж.* **віяланчэлі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ВІЯЛАНЧЭ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Чатырохструнны смычковы музычны інструмент, сярэдні па рэгістры і памерах паміж скрыпкай і кантрабасам. ‖ *прым.* **віяланчэ́льны**, -ая, -ае.

**ВО**, *часц. ўказ.* (разм.). **1.** Ужыв., калі трэба паказаць што-н., звярнуць увагу на што-н. *Во, рыбіна плёснула. Кладзі ўсё гэта во сюды.* **2.** Ужыв., калі трэба выказаць здзіўленне, задавальненне або незадавальненне, абурэнне. *Во малайцы, што прыехалі. Во, што яны тут натварылі!* **3.** Ужыв. пры пытальных і адносных займенніках і прыслоўях, калі трэба акцэнтаваць на нечым увагу. *Вы мне во што скажыце, даражэнькія.* **4.** Ужыв., калі трэба пацвердзіць сказанае некім. *Во бачыш, і Аляксей табе тое самае кажа.* **5.** Ужыв., калі трэба падвесці вынік сказанаму. *Во як бывае.* **6.** *у знач. выкл.* Ужыв. для ўзмацнення эмацыянальнай афарбоўкі сказа. *Во мароз дык мароз!*

**ВО́БАД**, -а, *М* -дзе, *мн.* абады́, -о́ў, *м.* **1.** Вонкавая частка кола, на якую нацягваецца шына. **2.** Частка некаторых прадметаў, прыстасаванняў у выглядзе кольца, авала. *В. блока. В. тэніснай ракеткі.* ‖ *памянш.* **абадо́к**, -дка́, *мн.* -дкі́, -дко́ў, *м.* ‖ *прым.* **або́дны**, -ая, -ае, **абадо́вы**, -ая, -ае *і* **абадо́чны**, -ая, -ае.

**ВО́БЗЕМЛЮ**, *прысл.* (разм.). Аб зямлю, на зямлю. *Грымнуўся в.*

**ВО́БЛА**, -ы, *ж.* Невялікая марская прамысловая рыба сямейства карпавых. *Вэнджаная в.* ‖ *прым.* **во́блавы**, -ая, -ае.

**ВО́БЛАКА**, -а, *мн.* во́блакі *і* абло́кі, -аў, *н.* **1.** Вялікая маса згусцелай вадзяной пары ў атмасферы. *Кучавыя воблакі.* **2.** *перан., чаго.* Суцэльная маса лёгкіх часцінак (пылу, дыму) у паветры. *В. пылу.* ‖ *памянш.* **во́блачка**, -а, *мн.* -і, -аў, *н. і* **аблачы́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **во́блачны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *В. слой.*

**ВО́БЛАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, абласце́й, *ж.* **1.** Частка якой-н. тэрыторыі, край. *В. экватара.* **2.** Буйная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў былым СССР, а цяпер у краінах СНД. *Віцебская в. Прыехаць з вобласці.* **3.** *чаго* або *якая.* Межы, у якіх распаўсюджана якая-н. з'ява, зона, пояс. *В. вечнай мерзлаты. Азёрная в.* **4.** *чаго* або *якая.* Асобная частка арганізма, участак цела. *В. сэрца. У грудной вобласці. Абследаваць в. ранення.* ‖ *прым.* **абласны́**, -а́я, -о́е (да 2 знач.). *А. цэнтр.*

**ВО́БЛАЧНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* воблачны. **2.** Наплыў воблакаў. *Густая в. Пераменная в.*

**ВО́БЛАЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* воблака. **2.** Пакрыты воблакамі (пра неба). *Воблачнае неба.* **3.** Хмурны (пра надвор'е). *В. дзень. Сёння воблачна* (у знач. вык.). ‖ *наз.* **во́блачнасць**, -і, *ж.*

**ВО́БМАЦКАМ**, *прысл.* Пры дапамозе дотыку, абмацваючы. *В. ходзяць сляпыя. Ісці в. каля сцяны.*

**ВО́БМЕШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* Тое, чым абмешваюць корм жывёле (мука, вотруб'е). *Пасыпаць сечку вобмешкай.*

**ВО́БРАЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У філасофіі: вынік і ідэальная форма адлюстравання прадметаў і з'яў матэрыяльнага свету ў свядомасці чалавека. **2.** Выгляд, аблічча, якія ўзнікаюць у памяці, ва ўяўленні. *В. маці.* **3.** Жывое, нагляднае ўяўленне аб кім-, чым-н. *Светлыя вобразы будучага.* **4.** У мастацтве: абагульненае мастацкае адлюстраванне рэчаіснасці, увасобленае ў форму канкрэтнай індывідуальнай з'явы. *Паэт мысліць вобразамі.* **5.** У мастацкім творы: тып, характар, створаны пісьменнікам, мастаком, артыстам. *Вобразы рамана. Артыст увайшоў у в.* (ужыўся ў ролю). *Стварыць в. рабочага.*

**ВО́БРАЗНЫ**, -ая, -ае. Які змяшчае ў сабе вобразы, паказвае што-н. у вобразах; яскравы, яркі, жывы. *Вобразнае абагульненне ўбачанага. Гаварыць вобразна* (прысл.). ‖ *наз.* **во́бразнасць**, -і, *ж.* *В. паэтычнай мовы.*

**ВО́БЫСК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Афіцыйны агляд каго-, чаго-н. з мэтай знайсці што-н. забароненае, недазволенае і пад. *Зрабіць в. Знайсці пры вобыску.* ‖ *прым.* **абыскны́**, -а́я, -о́е.

**ВОГНЕ...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач.: які мае адносіны да агню, напр.: *вогнетрывалы, вогнеўстойлівы.*

**ВОГНЕНЕБЯСПЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які лёгка загараецца. *Вогненебяспечная вадкасць.* ‖ *наз.* **вогненебяспе́чнасць**, -і, *ж.*

**ВО́ГНЕННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* агонь. **2.** Тое, што і *агнявы* (у 1—4 знач.). ‖ *наз.* **во́гненнасць**, -і, *ж.*

**ВОГНЕПАКЛО́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які пакланяецца агню як бажаству. ‖ *ж.* **вогнепакло́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **вогнепакло́нніцкі**, -ая, -ае.

**ВОГНЕПАКЛО́НСТВА**, -а, *н.* Культ агню як адна з форм першабытнага абагаўлення прыроды. ‖ *прым.* **вогнепакло́нніцкі**, -ая, -ае.

**ВОГНЕТУШЫ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Спецыяльны апарат для тушэння невялікага пажару.

**ВО́ГНІК**, -у, *м.* (разм.). Хвароба, якая суправаджаецца высыпкай на губах, твары.

**ВО́ГНІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *н.* **1.** Распаленая куча ламачча, дроў; агонь. *Грэцца каля вогнішча.* **2.** Месца, дзе гарэў агонь. ‖ *прым.* **во́гнішчавы**, -ая, -ае.

**ВОДА...** (а таксама **вада...**). Першая састаўная частка складаных слоў у знач.: які адносіцца да вады, да яе выкарыстання, да дзеяння сілай вады; пішацца, калі націск у другой частцы слова падае не на першы склад, напр.: *водаварот, водакарыстанне, воданепранікальны.*

**ВОДААДВО́ДНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для сцёку вады адкуль-н. *В. канал.*

**ВОДАЗАБЕСПЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Забеспячэнне вадой. *В. горада.*

**ВОДАЗМЯШЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Колькасць вады, якую выцясняе плаваючае судна. *Судна водазмяшчэннем у дваццаць тысяч тон.*

**ВОДАЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае. Пра расліны: які добра расце на вільготных, сырых глебах.

**ВОДАЛЯЧЭ́БНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Спецыяльная ўстанова для водалячэння.

**ВОДАЛЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Сістэма лячэння хворых воднымі працэдурамі. ‖ *прым.* **водалячэ́бны**, -ая, -ае.

**ВОДАНАПО́РНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **воданапорная вежа** — рэзервуар для вады, куды яна паступае пад напорам і адкуль расцякаецца па водаправодзе.

**ВОДАНЕПРАНІКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які не прапускае вады. *Воданепранікальная тканіна.* ‖ *наз.* **воданепраніка́льнасць**, -і, *ж.*

**ВОДАПАД'Ё́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Гідратэхнічнае збудаванне для пад'ёму вады на вышыню.

**ВОДАПАД'Ё́МНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для падачы вады ўверх. *В. механізм.*

**ВОДАПАДЗЕ́Л**, -у, *м.* Узвышша, якое падзяляе басейны некалькіх рэк. ‖ *прым.* **водападзе́льны**, -ая, -ае.

**ВОДАПРАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сістэма збудаванняў, якая пастаўляе ваду ў месцы спажывання. ‖ *прым.* **водаправо́дны**, -ая, -ае.

**ВОДАПРАВО́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па водаправодных работах.

**ВОДАПРАНІКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які прапускае праз сябе ваду. ‖ *наз.* **водапраніка́льнасць**, -і, *ж.*

**ВО́ДАР**, -у, *м.* Прыемны пах, духмянасць. *В. палёў.* ‖ *прым.* **во́дарны**, -ая, -ае.

**ВОДАРАЗБО́РНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **водаразборная калонка** — водаправоднае ўстройства з кранам, размешчанае на дварэ.

**ВО́ДАРАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -цей, *ж.* Ніжэйшая вадзяная расліна, у якой адсутнічае падзел на сцябло, ліст і корань. *Сажалка зарасла водарасцямі.* ‖ *прым.* **во́дарасцевы**, -ая, -ае.

**ВО́ДБЛІСК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Ззянне адбітага святла, бляск. *На вершалінах дрэў мігцелі водбліскі пажару. В. славы* (перан.).

**ВО́ДГУК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Адбіццё гуку, водгулле, рэха. **2.** Слабы гук, які даносіцца здалёку. *В. страляніны.* **3.** *перан.* Спачувальныя адносіны, салідарнасць з чым-н. *Знайсці в. у сэрцы. В. на чужое гора.* **4.** *перан., чаго.* Тое, што з'яўляецца вынікам чаго-н., адказам на якія-н. падзеі, з'явы. *Водгукі мінулага.*

**ВО́ДГУЛЛЕ**, -я, *н.* **1.** Адбіццё гуку, рэха. **2.** *перан., чаго.* Тое, што і *водгук* (у 4 знач.). *В. вайны.*

**ВО́ДДАЛЬ. 1.** *прысл.* На некаторай адлегласці. *Хата стаяла в.* **2.** *прыназ. з Р.* Ужыв. пры абазначэнні прадмета, пункта і пад., у адносінах да якога вызначаецца месца знаходжання, становішча каго-, чаго-н. *В. дарогі стаяла вёска.*

**ВО́ДЗЫЎ**, -зыву, *мн.* -зывы, -зываў, *м.* **1.** Думка, меркаванне з ацэнкай каго-, чаго-н. *В. на манаграфію.* **2.** Сакрэтнае ўмоўнае слова, якое з'яўляецца адказам на пароль.

**ВО́ДКУП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* У дарэвалюцыйнай Расіі: права на спагнанне дзяржаўных падаткаў, на манапольнае вядзенне гандлю, якое перадавалася казной прыватным асобам за грашовы ўзнос. *Вінны в. Аддаць на в. што-н.* (перан.: у поўнае распараджэнне). ‖ *прым.* **адкупны́**, -а́я, -о́е. *Адкупная сістэма.*

**ВО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто працуе на водным транспарце. **2.** Чалавек, які займаецца водным турызмам. *Турысты-воднікі.*

**ВО́ДНЫ** *гл.* вада.

**ВО́ДПАВЕДЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Рэзкі адказ на беспадстаўнае абвінавачванне. *Суровая в.*

**ВО́ДПУСК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* адпусціць. **2.** Часовае вызваленне ад працы для адпачынку, лячэння і пад. *Узяць чарговы в. Знаходзіцца ў водпуску. Дэкрэтны в.*

**ВО́ДРУБ**, -а, *мн.* адрубы́, адрубо́ў, *м.* Участак зямлі, які атрымліваў селянін (у 1906—1916 гг.) у асабістую ўласнасць пры выхадзе з абшчыны. ‖ *прым.* **адрубны́**, -а́я, -о́е. *Адрубная гаспадарка.*

**ВО́ДСВЕТ**, -у, *М* -свеце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адбітак святла, водбліск. *В. месяца.*

**ВО́ДСТУП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Свабоднае месца, якое пакідаецца перад пачаткам радка напісанага або надрукаванага тэксту. *В. у пачатку радка.*

**ВОЕНАЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вайсковы або флоцкі начальнік, камандзір (звычайна вышэйшы). *Вопытны в.*

**ВО́ЖАГ**, -а, *мн.* ажагі́, ажаго́ў, *м.* Дзяржальна вілак, качаргі. ‖ *прым.* **ажаго́вы**, -ая, -ае.

**ВО́ЖЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Невялікі звярок з доўгімі вострымі іголкамі на спіне і баках. **2.** Мужчынская прычоска ў выглядзе коратка абстрыжаных стаячых валасоў. *Стрыгчыся пад вожыка.* ‖ *прым.* **во́жыкавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ВОЗ**, -а, *мн.* вазы́, вазо́ў, *м.* **1.** Сродак гужавога транспарту, прызначаны для язды і перавозкі грузаў; калёсы. *Класці сена на в.* **2.** Нагружаныя паклажай калёсы, сані і пад., а таксама колькасць таго, што можа змясціцца на павозцы. *Везці в. сена. В. дроў. Што з воза ўпала, тое прапала* (прыказка). *Цэлы в. навін* (перан.: вельмі многа). *Вазамі вазіць* (надта многа). *Цягнуць в.* (перан.: выконваць усю асноўную работу). ‖ *прым.* **вазавы́**, -а́я, -о́е.

**ВО́ЗЕРА**, -а, *мн.* азёры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) во́зеры, азёр *і* -аў, *н.* Замкнуты ў берагах вялікі натуральны вадаём. *Лясное в.* ‖ *памянш.* **азярцо́**, -а́, *мн.* азе́рцы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) азярцы́, азе́рцаў, *н. і* **азярко́**, -а́, *мн.* азяркі́, азярко́ў, *н.* ‖ *прым.* **азё́рны**, -ая, -ае. *Полаччына — а. край.*

**ВО́ЗКА** *гл.* вазіць.

**ВО́ЗНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто кіруе запрэжанымі коньмі; рамізнік, фурман. **2.** Той, хто займаецца возніцтвам. ‖ *прым.* **во́зніцкі**, -ая, -ае.

**ВО́ЗНІЦТВА**, -а, *н.* Промысел па перавозцы коньмі каго-, чаго-н. *Займацца возніцтвам.* ‖ *прым.* **во́зніцкі**, -ая, -ае.

**ВО́ЗЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто займаецца перавозам грузаў на калёсах; вазак. **2.** Тое, што і *візнік* (у 1 знач.). ‖ *прым.* **во́зчыцкі**, -ая, -ае.

**ВО́ІН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (высок.). Той, хто змагаецца з ворагам, ваеннаслужачы, баец. *Воін беларускай арміі. Адзін у полі не в.* (прыказка).

**ВО́ІНСКІ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да ваеннай справы, ваеннай службы. *Воінская павіннасць. Усеагульны в. абавязак.* **2.** Уласцівы воіну (высок.). *Воінская доблесць.*

**ВО́ІНСТВА**, -а, *н.*, таксама *зб.* (высок.). Войска, воіны.

**ВОЙ**, *выкл.* Выказвае пачуццё болю, страху, трывогі, здзіўлення, захаплення, радасці. *Вой, уцякайма адсюль. Вой, якая ты шчаслівая.*

**ВО́ЙКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Вымаўляць, выкрыкваць «вой» ‖ *аднакр.* **во́йкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. *Г в. не паспеў.* ‖ *наз.* **во́йканне**, -я, *н.*

**ВО́ЙСКА**, -а, *мн.* -і, войск *і* -аў, *н.* Узброеныя сілы дзяржавы або частка іх. *Сухапутныя войскі.* ‖ *прым.* **вайско́вы**, -ая, -ае. *Вайсковыя злучэнні.*

**ВО́КА**, -а, *мн.* во́чы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) во́кі, вок, вачэ́й, *Д* вача́м, *Т* вача́мі *і* вачы́ма, *М*

**ВЫ́БЛЫТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што.* Разблытаўшы, выняць, вызваліць. *В. птушку з сіла.* **2.** *перан., каго.* Памагчы выйсці з цяжкага становішча (разм.). *В. з небяспечнай справы.* ‖ *незак.* **выблы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫБО́ІНА**, -ы, *мн.* -ы, -бо́ін, *ж.* **1.** Паглыбленне на паверхні чаго-н., выбітае ўдарам. **2.** Яма на дарозе ад язды. *Дарога ў выбоінах.*

**ВЫБО́ІСТЫ**, -ая, -ае. З выбоінамі; калдобісты. *Выбоістая дарога.* ‖ *наз.* **выбо́істасць**, -і, *ж.*

**ВЫБРА́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (высок.). Той, хто выбраны кім-н. *Дэпутаты Нацыянальнага сходу. В. лёсу* (перан.). ‖ *ж.* **выбра́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **выбра́нніцкі**, -ая, -ае.

**ВЫ́БРАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Адабраны для масавага выдання. *Выбраныя творы Якуба Коласа.* **2.** Лепшы, які выдзяляецца чым-н. сярод іншых, прывілеяваны. *Выбранае кола людзей.*

**ВЫ́БРАЦЦА**, -беруся, -берашся, -беерацца; -берыся; *зак.* **1.** З цяжкасцямі выйсці, выехаць адкуль-н. *В. з натоўпу. В. з бяды* (перан.). **2.** Выселіцца, перабрацца. *В. на другую кватэру.* **3.** Знайсці час, магчымасць адправіцца куды-н. (разм.). *В. ў кіно.* ‖ *незак.* **выбіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫ́БРАЦЬ**, -беру, -бераш, -бера; -беры; -браны; *зак.* **1.** *што.* Адабраць, выняць. *В. смецце з зерня. В. цытаты з класікаў.* **2.** *каго-што.* Узяць патрэбнае, аддаць перавагу каму-, чаму-н. *В. кнігу для чытання. В. прафесію. В. спадарожніка.* **3.** *каго (што).* Абраць галасаваннем. *В. новы склад прафкама.* **4.** *што.* Выняць, дастаць адкуль-н. усё да апошняга; зрасходаваць. *В. ваду са студні. В. ліміты.* **5.** *што.* Сабраць ураджай бульбы, агуркоў і пад. *В. цыбулю ў агародзе.* **6.** *што.* Знайсці, вызваліць для якой-н. мэты (пра час). *В. вольную часіну.* ‖ *незак.* **выбіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **вы́бар**, -у, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**ВЫ́БРУКАВАЦЬ** *гл.* брукаваць.

**ВЫ́БРЫК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). **1.** *гл.* выбрыкваць. **2.** Учынак, які супярэчыць агульнапрынятым нормам паводзін. *Гэта ўсё яго выбрыкі.*

**ВЫБРЫ́КВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Бегаючы, ускідваць заднімі нагамі (пра жывёл). **2.** *перан.* Гарэзіць, дурэць. ‖ *аднакр.* **вы́брыкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **вы́брык**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ВЫ́БРЫСЦІ**, -брыду, -брыдзеш, -брыдзе; -брыдзі; *зак.* Брыдучы, выйсці адкуль-н. *В. з вады. В. з зачараванага кола* (перан.).

**ВЫ́БРЫЦЬ**, -брыю, -брыеш, -брые; -брыты; *зак., каго-што.* Зрэзаць брытвай валасы на чым-н., выгаліць. *В. твар.* ‖ *незак.* **выбрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **вы́брыцца**, -брыюся, -брыешся, -брыецца; *незак.* **выбрыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫ́БУДАВАЦЬ** *гл.* будаваць.

**ВЫБУДО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *будаваць* (у 1 знач.).

**ВЫ́БУХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Імгненнае разбурэнне чаго-н., якое суправаджаецца ўтварэннем моцна нагрэтых, з высокім ціскам газаў; гук, які суправаджае такое разбурэнне. *Ядзерны в. В. газаў.* **2.** *перан., чаго.* Раптоўнае праяўленне чаго-н. *В. смеху. В. абурэння.*

**ВЫ́БУХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; *зак.* **1.** Узарвацца. *Снарад выбухнуў.* **2.** З сілай вырвацца адкуль-н. *Полымя з дымам выбухнула з печы.* **3.** *перан.* Нечакана пачацца, раптоўна ўзнікнуць (пра пачуцці, грамадскія ўзрушэнні). *Выбухнуў гнеў. Выбухнула забастоўка.* ‖ *незак.* **выбуха́ць**, -а́е.

**ВЫБУХНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які служыць для ўтварэння выбуху (у 1 знач.). *Выбухная камера.* **2.** Такі, вымаўленне якога суправаджаецца выбухам (пра гукі мовы). *Выбухныя зычныя.*

**ВЫБУХО́ВЫ**, -ая, -ае. Які мае дачыненне да выбуху (у 1 знач.), з'яўляецца вынікам выбуху або здольны ўтварыць выбух ці здольны ўзрывацца. *Выбуховая хваля. Выбуховыя рэчывы.*

**ВЫ́БЫЦЬ**, -буду, -будзеш, -будзе; вы́будзь; *зак.* (афіц.). Перастаць знаходзіцца або лічыцца дзе-н. *В. з горада. В. у камандзіроўку. В. са строю.* ‖ *незак.* **выбыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **выбыццё**, -я́, *н.*

**ВЫБЯГА́ЦЬ** *гл.* выбегчы.

**ВЫ́ВАД**, -у *і* -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* вывесці[1]. **2.** -у. Суджэнне, якое лагічна вынікае з меркаванняў. *Тэарэтычныя, практычныя вывады.* **3.** -а. Провад або прыстасаванне, прызначанае для сувязі са знешнім асяроддзем (спец.). ‖ *прым.* **вывадны́**, -а́я, -о́е (да 3 знач.).

**ВЫ́ВАДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* Птушаняты або дзеці млекакормячых, якія жывуць яшчэ разам. *Вераб'іны в. Воўчы в.* ‖ *прым.* **вы́вадкавы**, -ая, -ае.

**ВЫ́ВАДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж* **1.** *гл.* вывесці[1]. **2.** Вывад коней для агляду ці размінкі (спец.). ‖ *прым.* **вы́вадкавы**, -ая, -ае.

**ВЫ́ВАЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* **1.** Узважваючы, вызначыць вагу (спец.). *В. тару.* **2.** Вывернуць рычагом. *Насілу пень выважылі.* ‖ *незак.* **вы́важваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ВАЗ** *гл.* вывезці.

**ВЫ́ВАЗІЦЬ**, -важу, -вазіш, -вазіць; -важаны; *зак., што.* Перавозячы часткамі, вывезці поўнасцю. *В. увесь гной на поле.*

**ВЫ́ВАЗКА** *гл.* вывезці.

**ВЫВАЗНЫ́** *гл.* вывезці.

**ВЫ́ВАЛАЧЫ**, -лаку, -лачаш, -лача; -лачам, -лачаце, -лакуць; вы́валак, -кла; -лачы; -лачаны; *зак., каго-што.* Выцягнуць волакам. *В. лодку з вады на бераг.* ‖ *незак.* **вывалака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **вывала́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ВАЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* Выпасці, упасці адкуль-н. *В. з воза. Кніга вывалілася з рук.* ‖ *незак.* **выва́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ВАЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Выкульваючы, выдаліць адкуль-н. *В. седакоў з саней.* ‖ *незак.* **выва́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ВАРАТ**, -у, *М* -раце, *м.* **1.** Унутраны, левы бок тканіны, адзення. *В. аднабаковага трыкатажу.* **2.** Становішча, пры якім орган ці яго частка вывернуты ўнутраным бокам наверх (спец.). *В. павек.* **3.** Тое, што і *выварацень.* ‖ *прым.* **вы́варатны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ВЫ́ВАРАЦЕНЬ**, -ратня, *мн.* -ратні, -ратняў, *м.* Вывернутае з коранем дрэва. *У лесе часцяком трапляліся вываратні.*

**ВЫВАРО́ЧВАЦЦА** *гл.* вывернуцца.

**ВЫВАРО́ЧВАЦЬ** *гл.* вывернуць.

**ВЫ́ВАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* **1.** Здабыць што-н. пры дапамозе кіпячэння, выварвання. *В. соль з марской вады.* **2.** Варкай давесці да патрэбнай ступені гатоўнасці або пераварыць (у 2 знач.). *В. мяса.* **3.** Кіпячэннем ачысціць ад чаго-н. *В. бялізну.*

**ВЫ́ВАСТРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* Добра навастрыць, зрабіць вострым. *В. нож.* ‖ *незак.* **выво́стрываць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ВЕДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разведаць што-н. такое, што трымаецца ў тайне. *В. тайны. В. чые-н. намеры.* ‖ *незак.* **выве́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ВЕЗЦІ**, -зу, -зеш, -зе; -вез, -зла; -зі; *зак., каго-што.* **1.** Везучы, аддаліць, адправіць куды-н., за межы чаго-н. *В. бярвенне з лесу. В. дзяцей за горад.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выручыць, дапамагчы выбрацца з цяжкага становішча (разм.). *Вывез шчаслівы выпадак.* ‖ *незак.* **выво́зіць**, -вожу, -во́зіш, -во́зіць. ‖ *наз.* **вы́ваз**, -у, *м.* (да 1 знач.) *і* **вы́вазка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **вывазны́**, -а́я, -о́е (паводле 1 знач.).

**ВЫ́ВЕРГНУТЫ**, -ая, -ае. Пра горныя пароды: якія ўтварыліся ў выніку дзеяння вулканічных сіл. *Вывергнутыя горныя пароды.*

**ВЫ́ВЕРГНУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* (кніжн.). Вырвацца, выйсці знутры чаго-н. *Вывергнуўся агонь з вулкана.* ‖ *незак.* **вывярга́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **вывяржэ́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ВЕРГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што* (кніжн.). Выштурхнуць з сябе. *Вулкан вывергнуў лаву.* ‖ *незак.* **вывярга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **вывяржэ́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ВЕРНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раскалываўшыся, выпасці, упасці. *Ад моцнага ветру вывернулася дрэва.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вывіхнуцца (разм.). *Рука вывернулася ў плячы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Перавярнуцца ўнутраным бокам наверх. *Вывернуліся рукавы кашулі.* **4.** Спрытным рухам, паваротам выслізнуць, вызваліцца, абмінуць перашкоду. *В. з рук праціўніка.* **5.** *перан.* Выйсці з цяжкага становішча

(разм.). *В. з бяды.* ‖ *незак.* **вывaро́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ВЕРНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *што з чаго.* Варочаючы, выняць, выцягнуць. *В. пень з коранем.* **2.** *што.* Надаць неўласцівы паварот, вывіхнуць (разм.). *В. нагу.* **3.** *каго-што з чаго.* Валячы, перакульваючы, выдаліць адкуль-н. (разм.). *В. вядро вады. В. седака з калёс.* **4.** *што.* Перавярнуць унутраным бокам наверх. *В. кішэні. В. навалачку.* ‖ *незак.* **вывaро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ВЕРЦЕЦЬ**, -рчу, -рціш, -рціць; -рці; -рчаны; *зак., што* (разм.). Разгарнуўшы, раскруціўшы, выняць. *В. харчы з хустачкі.*

**ВЫ́ВЕРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* Дасканала праверыць. *В. рукапіс.* ‖ *незак.* **вывяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **вы́верка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.*

**ВЫ́ВЕСІЦЬ**, -вешу, -весіш, -весіць; -вешаны; *зак., што.* **1.** Павесіць для агульнага агляду, азнаямлення. *В. аб'яву.* **2.** Павесіць на вольным паветры або ў памяшканні для прасушвання, праветрывання. *В. бялізну на дварэ.* ‖ *незак.* **выве́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ВЕСЛАВАЦЬ**, -лую, -луеш, -луе; -луй; *зак.* Грабучы вёсламі, выплысці. *В. на сярэдзіну ракі.*

**ВЫ́ВЕСЦІ**[1], -веду, -ведзеш, -ведзе; вы́веў, -вела; вы́ведзі; -ведзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Ведучы, накіраваць куды-н., выдаліць адкуль-н. *В. войскі на парад. В. дзяцей на двор. В. каня з канюшні. В. з бяды* (перан.). **2.** *каго-што з чаго.* Выключыць, прымусіць выйсці са складу чаго-н. *В. з гульні. В. з саставу прэзідыума.* **3.** *перан., каго (што), з чаго.* Уздзейнічаючы якім-н. чынам, прывесці ў які-н. стан, становішча. *В. з раўнавагі* (пазбавіць раўнавагі, спакою). *В. з цярпення* (раздражніць). *В. з сябе* (давесці да страты самавалодання). **4.** *каго-што.* Знішчыць, вынішчыць. *В. прусакоў. В. плямы на паліто.* **5.** *што* і *без дап.* Зрабіць вывад, прыйсці да чаго-н. разважаннем. *В. формулу.* ‖ *незак.* **выво́дзіць**, -во́джу, -во́дзіш, -во́дзіць. ‖ *наз.* **вывядзе́нне**, -я, *н.* (да 2, 4 і 5 знач.), **вы́вад**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 і 2 знач.) *і* **вы́вадка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 4 знач.).

**ВЫ́ВЕСЦІ**[2], -веду, -ведзеш, -ведзе; вы́веў, -вела; вы́ведзі; -ведзены; *зак.* **1.** *каго.* Расплодзіць, выседзець з яйца (птушанят). *В. куранят.* **2.** *што.* Вырасціць, стварыць (сорт раслін, пароду жывёл, птушак). *В. новы сорт яблыкаў.* **3.** *што.* Збудаваць, паставіць. *В. комін.* **4.** *што.* Старанна адлюстраваць, а таксама старанна вымавіць ці праспяваць. *В. літару. В. трэль.* **5.** *каго-што.* Апісаць у мастацкім творы. *В. вобраз сучасніка.* ‖ *незак.* **выво́дзіць**, -во́джу, -во́дзіш, -во́дзіць.

**ВЫ́ВЕСЦІСЯ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -ведзецца; вы́веўся, -велася; *зак.* **1.** Перастаць існаваць; выйсці з ужытку. *Вывелася рыба ў сажалцы. Такія звычаі ўжо даўно вывеліся.* **2.** Знікнуць, знішчыцца, аказацца выведзеным (*гл.* вывесці[1] ў 4 знач.). *Плямы вывеліся.* ‖ *незак.* **выво́дзіцца**, -во́дзіцца.

**ВЫ́ВЕСЦІСЯ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -ведзецца; вы́веўся, -велася; *зак.* Пра птушанят, насякомых: паявіцца на свет. ‖ *незак.* **выво́дзіцца**, -во́дзіцца.

**ВЫ́ВЕТРАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *зак.* **1.** Пазбавіцца вільгаці, высахнуць. *Гной выветраў.* **2.** Тое, што і *выветрыцца* (у 1 знач.).

**ВЫ́ВЕТРЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -рыцца; *зак.* **1.** Разбурыцца пад уплывам атмасферных ваганняў (пра горныя пароды). **2.** Знікнуць пад уздзеяннем свежага паветра або ветру. *Чад выветрыўся. В. з памяці* (перан.). ‖ *незак.* **выве́трывацца**, -аецца. ‖ *наз.* **выве́трыванне**, -я, *н. В. горных парод.*

**ВЫ́ВЕТРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* **1.** Разбурыць пад уздзеяннем ветру, пад уплывам атмасферных ваганняў. *Вецер выветрыў торф.* **2.** Прымусіць што-н. знікнуць праветрываннем або пад уздзеяннем ветру. *В. смурод.* ‖ *незак.* **выве́трываць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выве́трыванне**, -я, *н.*

**ВЫВЕ́ШВАЦЬ** *гл.* вывесіць.

**ВЫ́ВІХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Зрушэнне косці ў суставе, а таксама месца, дзе адбылося такое зрушэнне. *В. рукі. Фармалістычныя вывіхі ў творчасці* (перан.).

**ВЫ́ВІХНУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* Зрушыцца ў суставе. *Палец вывіхнуўся.*

**ВЫ́ВІХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* Пашкодзіць, зрушыўшы косці ў суставе. *В. нагу.* ‖ *незак.* **выві́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫВО́ДЗІЦЦА**[1] *гл.* вывесціся[1].

**ВЫВО́ДЗІЦЦА**[2] *гл.* вывесціся[2].

**ВЫВО́ДЗІЦЬ**[1] *гл.* вывесці[1].

**ВЫВО́ДЗІЦЬ**[2] *гл.* вывесці[2].

**ВЫВО́ЗІЦЬ** *гл.* вывезці.

**ВЫВО́СТРЫВАЦЬ** *гл.* вывастрыць.

**ВЫ́ВУДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што.* **1.** Вылавіць вудай. *В. шчупака.* **2.** *перан.* Выведаць, здабыць што-н. хітрыкамі, падманам (разм.). *В. сакрэты. В. грошы ў каго-н.* ‖ *незак.* **выву́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ВУЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* **1.** *гл.* вывучыць. **2.** Набытыя ў працэсе вучобы ўменне, навыкі, практычны вопыт. *Добрая в. Ваенная в.*

**ВЫ́ВУЧЫЦЦА** *гл.* вучыцца.

**ВЫ́ВУЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *гл.* вучыць. **2.** *што.* Вучачы, засвоіць; развучыць. *В. замежную мову. В. песню.* **3.** *што.* Навукова даследаваць, пазнаць. *В. прычыны засухі. В. старажытную архітэктуру.* **4.** *што.* Уважліва назіраючы, азнаёміцца, зразумець. *В. абстаноўку.* ‖ *незак.* **вывуча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выву́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **вы́вучка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.*

**ВЫ́ВЯЗАЦЬ**, -вяжу, -вяжаш, -вяжа; -вяжы; -вязаны; *зак., што.* Сплесці пры дапамозе кручка, спіц. *В. узор.* ‖ *незак.* **вывя́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫВЯРГА́ЦЦА** *гл.* вывергнуцца.

**ВЫВЯРГА́ЦЬ** *гл.* вывергнуць.

**ВЫВЯРЖЭ́ННЕ** *гл.* вывергнуцца, вывергнуць.

**ВЫ́ГАБЛЕВАЦЬ** *гл.* габляваць.

**ВЫ́ГАВАРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). Выказаць усё да канца. *Дайце яму в.*

**ВЫ́ГАВАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* **1.** *што.* Вымавіць, сказаць. *Гэта слова цяжка в.* **2.** *што.* Дамагчыся абяцання чаго-н. (разм.). *В. тыдзень адтэрміноўкі.* **3.** *каму.* Прабраць (разм.). *Маці выгаварыла хлапчуку за свавольства.* ‖ *незак.* **выгаво́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ГАДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -гад, *ж.* **1.** Карысць, прыбытак; разлік. *Атрымаць выгаду. Няма выгады ехаць туды.* **2.** Тое, што і *выгода* (у 1 і 2 знач.).

**ВЫ́ГАДАВАЦЦА**, -дуюся, -дуешся, -дуецца; -дуйся; *зак.* Дасягнуць сталага ўзросту; вырасці. *Дзяўчынка выгадавалася ў дзіцячым доме.*

**ВЫ́ГАДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны; *зак., каго-што.* Дагледзячы, вырасціць. *В. дзяцей. В. сад.* ‖ *незак.* **выгадо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ГАДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зберагчы, набыць, знайсці (пра час, сродкі, матэрыял). *В. час. В. кавалак тканіны пры раскроі.* ‖ *незак.* **выга́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ГАДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прыносіць выгаду, карысць. *Выгаднае пагадненне.* **2.** Які мае перавагу; спрыяльны, добры. *Выгаднае становішча. Выгаднае месца для будаўніцтва.* ‖ *наз.* **вы́гаднасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́ГАЛАДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Тое, што і *прагаладацца.*

**ВЫ́ГАЛЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *зак.* Стаць пустым, голым. *Усё навокал выгалела.*

**ВЫ́ГАЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Зрэзаць брытвай валасы на чым-н.; выбрыць. ‖ *незак.* **выго́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *зак., звар.* **вы́галіцца**, -люся, -лішся, -ліцца; *незак.* **выго́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ГАН**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Месца каля вёскі, дзе пасецца жывёла. ‖ *прым.* **вы́ганны**, -ая, -ае.

**ВЫ́ГАНКА** *гл.* выгнаць.

**ВЫГАНЯ́ЦЬ** *гл.* выгнаць.

**ВЫ́ГАР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Участак лесу, балота, сенажаці, выпалены агнём, пажарам.

**ВЫ́ГАРАДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *што.* Выдзеліць, аддзяліць агароджай. *В. прагон для жывёлы.* **2.** *перан., каго (што).* Узяць пад абарону, пазбавіць ад адказнасці, абвінавачання каго-н. з вінаватых (разм.). *В. сябра.* ‖ *незак.* **выгаро́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ГАРАЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Выпалены; які пасох, загінуў ад спёкі. *Выгаралая тра-*

*ва.* **2.** Які страціў афарбоўку ад уздзеяння сонца. *Выгаралыя валасы. Выгаралая хусцінка.*

**ВЫ́ГАРАЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -рыць; *зак.* **1.** Згарэць поўнасцю. *Выгаралі дровы ў печы. Вёска выгарала.* **2.** Выліняць, страціць натуральны колер. *Матэрыял выгараў на сонцы.* ‖ *незак.* **выгара́ць**, -áе *і* **выга́рваць**, -ае.

**ВЫ́ГАРАЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -рыць; *зак.* (разм.). Становуча вырашыцца, удацца. *Справа яго не выгарала.* ‖ *незак.* **выгара́ць**, -áе.

**ВЫ́ГАРНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* Выграбці адкуль-н. *В. жар з печы.* ‖ *незак.* **выго́ртваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫГАРО́ДЖВАЦЬ** *гл.* выгарадзіць.

**ВЫГА́РЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -рын, *ж.* Тое, што і *выгар.*

**ВЫ́ГАФТАВАЦЬ** *гл.* гафтаваць.

**ВЫ́ГАЦІЦЬ**, -гачу, -гаціш, -гаціць; -гачаны; *зак., што.* Зрабіць гаць на чым-н. *В. дарогу бярвеннем.* ‖ *незак.* **выга́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ГІБ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Выпукласць, выпуклая лінія згібу. *В. дугі. В. ракі.*

**ВЫГІБА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* Тое, што і *выгінацца.*

**ВЫГІБА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* Тое, што і *выгінаць.*

**ВЫ́ГІН**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *выгіб.*

**ВЫГІНА́СТЫ**, -ая, -ае (разм.). Выгнуты, звілісты. *Выгінастая шабля. Выгінастая сцежка.* ‖ *наз.* **выгіна́стасць**, -і, *ж.*

**ВЫГІНА́ЦЦА** *гл.* выгнуцца.

**ВЫГІНА́ЦЬ** *гл.* выгнуць.

**ВЫ́ГЛАДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* **1.** Стаць роўным, гладкім. *Выгладзіўся тронак рыдлёўкі.* **2.** Стаць адпрасаваным. *Сукенка добра выгладзілася.* **3.** Стаць сытым, гладкім (разм.). ‖ *незак.* **выгла́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ГЛАДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць роўным, гладкім. *В. дарогу.* **2.** *што.* Адпрасаваць, расправіць складкі. *В. кашулю прасам.* **3.** *каго (што).* Адкарміць, зрабіць сытым (разм.). *В. кабанчыка.* ‖ *незак.* **выгла́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫГЛЕ́ДЖВАЦЬ** *гл.* выглядзець.

**ВЫ́ГЛЯД**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** Знешнасць, вонкавае аблічча; стан. *Здаровы в. Шарападобны в. З вучоным выглядам.* **2.** У спалучэнні з прыназоўнікамі «з», «на», «пад» утварае прыслоўныя словазлучэнні ў знач. знешне. *На в.* або *з выгляду ён яшчэ маладжавы.* ◊ **Для выгляду** — каб толькі здавалася. **Не падаць** (або **не паказаць**) **выгляду** — не даць заўважыць, зразумець што-н. **Пад выглядам** *каго-чаго* (разм.) — пад маркай каго-, чаго-н., выдаючы за каго-, што-н. **Рабіць выгляд** — прыкідвацца, прытварацца. **У выглядзе** *чаго* — у форме чаго-н. *Выклаў даклад у выглядзе тэзісаў.*

**ВЫГЛЯДА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *гл.* выглядзець. **2.** Мець які-н. выгляд або здавацца каму-н. кім-, чым-н. *Добра в. В. героем.* **3.** Высоўваючыся з укрыцця, глядзець, пазіраць (разм.). *В. з-за вугла.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Віднецца, быць відным. *Насоўка выглядала з кішэні.*

**ВЫГЛЯ́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *выглядаць* (у 3 і 4 знач.).

**ВЫ́ГЛЯДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што.* Уважліва назіраючы, заўважыць, знайсці. *В. сябра ў натоўпе.* ‖ *незак.* **выгляда́ць**, -áю, -áеш, -áе, **выгля́дваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **выгле́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ГЛЯНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -глянь; *зак.* **1.** Высунуўшыся з укрыцця, глянуць, паглядзець. *В. з-за вугла на вуліцу.* **2.** Стаць відным, паказацца. *З-за хмар выглянула сонца.* ‖ *незак.* **выгля́дваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **выгляда́ць**, -áю, -áеш, -áе (разм.).

**ВЫ́ГЛЯНЦАВАЦЬ**, -цую, -цуеш, -цуе; -цуй; -цаваны; *зак., што.* Навесці глянец на што-н. *В. стол лакам. Выглянцаваныя манеры* (перан.). ‖ *незак.* **выглянцо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫГНА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* выгнаць (у 2 знач.). **2.** Вымушанае знаходжанне дзе-н. у якасці выгнанага. *Жыць у выгнанні.*

**ВЫГНА́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто знаходзіцца ў выгнанні. ‖ *ж.* **выгна́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **выгна́нніцкі**, -ая, -ае.

**ВЫ́ГНАЦЬ**, -ганю, -ганіш, -ганіць; -гані; -гнаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Гонячы, прымусіць выйсці, выехаць; выдаліць. *В. жывёлу з хлява. В. з работы* (перан.). **2.** *каго-што.* Выдаліць сілай, прагнаць. *В. акупантаў. В. дрэнныя думкі з галавы* (перан.). **3.** *што.* Здабыць шляхам перагонкі (спец.). *В. бочку шкіпінару.* ‖ *незак.* **выганя́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **вы́ганка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (да 3 знач.).

**ВЫ́ГНІСЦІ** *і* **ВЫ́ГНІЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -гніе; *зак.* Згнісці ў адным месцы, у сярэдзіне або поўнасцю. *Выгніў яблык. Падлога выгніла.* ‖ *незак.* **выгніва́ць**, -áе.

**ВЫ́ГНУЦЦА**, -гнуся, -гнешся, -гнецца; -ніся; *зак.* Прыняць дугападобную форму, утварыць выгіб. ‖ *незак.* **выгіна́цца**, -áюся, -áешся, -áецца *і* **выгіба́цца** -áюся, -áешся, -áецца.

**ВЫ́ГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* **1.** Сагнуць дугой, надаць сагнутую форму. *В. шыю.* **2.** Выпрастаць, разгарнуць (разм.). *В. бляху.* ‖ *незак.* **выгіна́ць**, -áю, -áеш, -áе *і* **выгіба́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ВЫГО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** пераважна *мн.* (**выго́ды**, -аў). Усё, што задавальняе максімальныя запатрабаванні, чым зручна карыстацца. *Кватэра з усімі выгодамі.* **2.** Прыволле. *Гусям тут в.*

**ВЫГО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Добра прыстасаваны для зручнага карыстання, цалкам прыдатны. *Выгодная канапа. Мне тут выгодна* (безас.; у знач. вык.). *Выгодна* (прысл.) *будзе ехаць.* **2.** Прывольны. *Выгодныя мясціны.* ‖ *наз.* **выго́днасць**, -і, *ж.*

**ВЫГО́ЛЬВАЦЦА** *гл.* выгаліцца.

**ВЫГО́ЛЬВАЦЬ** *гл.* выгаліць.

**ВЫГРАБНЫ́**, -áя, -óе. Прызначаны для выграбання. *Выграбная лапата.* ○ **Выграбная яма** — памыйная яма для звальвання смецця, розных нечыстот.

**ВЫ́ГРАБЦІ**, -грабу, -грабеш, -грабе; вы́граб, -бла; вы́грабі; -бены; *зак., што.* **1.** Грабучы, выдаліць. *В. попел з печы.* **2.** Грабучы, рыючы, утварыць паглыбленне. *В. ямку, нару.* ‖ *незак.* **выграба́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ВЫ́ГРАВІРАВАЦЬ** *гл.* гравіраваць.

**ВЫ́ГРУЗІЦЦА**, -ружуся, -рузішся, -рузіцца; *зак.* Высадзіцца адкуль-н. з грузам. *Вайсковая часць выгрузілася з поезда.* ‖ *незак.* **выгружа́цца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ВЫ́ГРУЗІЦЬ**, -ружу, -рузіш, -рузіць; -ружаны; *зак., што.* Дастаць і вынесці груз з чаго-н. *В. багаж.* ‖ *незак.* **выгружа́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **вы́грузка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.*

**ВЫ́ГУК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Гучны вокліч, вокрык. *В. адабрэння.*

**ВЫ́ГУКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* і *аднакр., што.* Гучна прамовіць, сказаць што-н., выкрыкнуць. ‖ *незак.* **выгу́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ГУЛЯЦЦА**, -яюся, -яешся, -яецца; *зак.* **1.** Уволю нагуляцца, адпачыць. *В. за дзень дома.* **2.** Набрацца сілы, адкарміцца на волі. *Выгулялася жывёла за лета.* ‖ *незак.* **выгу́львацца**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца.

**ВЫДАВА́ЦЦА** *гл.* выдацца.

**ВЫДАВА́ЦЬ** *гл.* выдаць.

**ВЫДАВЕ́Ц**, -даўца́, *мн.* -даўцы́, -даўцо́ў, *м.* Той, хто займаецца выдавецкай справай. ‖ *прым.* **выдаве́цкі**, -ая, -ае.

**ВЫДАВЕ́ЦТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Установа, якая займаецца выданнем кніг, часопісаў і пад. ‖ *прым.* **выдаве́цкі**, -ая, -ае.

**ВЫ́ДАІЦЬ**, -даю, -даіш, -даіць; -даены; *зак.* **1.** *каго (што).* Тое, што і *падаіць. В. кароў.* **2.** *што.* Атрымаць даеннем. *В. малако.* ‖ *незак.* **выдо́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ДАЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* **1.** *каго-што.* Прымусіць выйсці, знікнуць; перамясціць. *В. пабочных асоб. В. прымесі.* **2.** *што.* Выразаць, выняць шляхам аперацыі. *В. пухліну. В. нырку.* ‖ *незак.* **выдаля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **выдале́нне**, -я, *н.*

**ВЫДА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* выдаць. **2.** Выдадзены твор. *Акадэмічнае в. Дваццацітомнае в. збору твораў Якуба Коласа.* ◊ **На выданні** — у тым узросце, калі пара выдаваць замуж (пра дзяўчыну).

**ВЫ́ДАСКАНАЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць больш успрыімлівым, тонкім, вострым. **2.** Дасягнуць поспеху, дайсці да дасканаласці ў выкананні чаго-н. ‖ *незак.* **выдаскана́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ДАСКАНАЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Развіваючы што-н., дасягнуць дасканаласці, зрабіць больш тонкім, вострым, успрымальным. *В. стыль.* ‖ *незак.* **выдаскана́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ДАТКАВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -куецца; *зак.* Зрасходавацца, зрасходаваць свае грошы. *В. ў дарозе.* ‖ *незак.* **выдатко́ўвацца**, -аецца; *наз.* **выдатко́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **выдаткава́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ДАТКАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны; *зак., што.* Зрасходаваць, патраціць. *В. грошы на будаўніцтва. В. усе сродкі.* ‖ *незак.* **выдатко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **выдатко́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **выдаткава́нне**, -я, *н.*

**ВЫДА́ТКІ**, -аў, *адз.* выда́так, -тку, *м.* Затраты на што-н., расходная сума. *В. вытворчасці. Прыбытак і в. бюджэту.*

**ВЫДА́ТНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* выдатны. **2.** Што-н. славутае. *Архітэктурныя выдатнасці Полацка.* **3.** Выдатны ў нейкай справе спецыяліст. *Сусветныя выдатнасці навукі.*

**ВЫДА́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Навучэнец, які мае выдатныя адзнакі па ўсіх вучэбных прадметах. *Круглы в.* **2.** Работнік, які выдатна выконвае свае абавязкі. *В. вытворчасці.* ‖ *ж.* **выда́тніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 1 знач.).

**ВЫДА́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вылучаецца сярод іншых, славуты; які карыстаецца вялікай вядомасцю. *В. вучоны.* **2.** Незвычайны, выключны. *В. розум. Выдатныя здольнасці.* **3.** Вельмі добры. *Прадукцыя выдатнай якасці. Ты ж выдатна* (прысл.) *спяваеш.* **4.** *у знач. наз.* **выда́тна**, *нескл., н.* Самая высокая адзнака (у 4 знач.). *Атрымаць выдатна па хіміі.* ‖ *наз.* **выда́тнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**ВЫ́ДАХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; вы́дах, -хла; *зак.* (разм.). Здохнуць, падохнуць; перавесціся (пра жывёлу).

**ВЫ́ДАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дасца; -дадуцца; *зак.* **1.** Утварыць выступ, выступіць за мяжу чаго-н. *Дом выдаўся вуглом на плошчу.* **2.** Здарыцца, выпасці; удацца. *Дзень выдаўся цёплы, сонечны. Ураджай выдаўся добры.* ‖ *незак.* **выдава́цца**, -дае́цца.

**ВЫ́ДАЦЬ**, -дам, -дасі, -дасць; -дадзім, -дасце, -дадуць; вы́дай; -дадзены; *зак.* **1.** *што.* Даць што-н., забяспечыць чым-н. *В. грашовы аванс. В. даведку.* **2.** *што.* Вырабіць, выпусціць (якую-н. прадукцыю), падаць як вынік работы (спец.). *Мартэн выдаў першую плаўку. Машына выдала інфармацыю.* **3.** (са словам «замуж» або без яго; разм.), *каго за каго.* Паспрыяць замужжу, аддаць замуж. *В. дачку за афіцэра. Удала выдалі дзяўчыну.* **4.** *што.* Выпусціць з друку, надрукаваць. *В. кнігу.* **5.** *што.* Апублікаваць, абвясціць. *В. пастанову.* **6.** *каго-што.* Раскрыць, зрабіць вядомым; удаць. *В. змоўшчыкаў. В. сакрэт. В. сябе неабдуманым словам.* **7.** *каго-што за каго-што.* Прадставіць, назваць каго-, што-н. не тым, кім, чым яны з'яўляюцца. *В. сябра за брата. В. чутае за бачанае.* ‖ *незак.* **выдава́ць**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -дае́це, -даю́ць; -дава́й. ‖ *наз.* **вы́дача**, -ы, *ж.* (да 1—3 і 6 знач.) *і* **выда́нне**, -я, *н.* (да 4 і 5 знач.).

**ВЫ́ДЗЕЛ**, -у, *м.* (спец.). Частка маёмасці, атрыманая ў карыстанне кім-н.

**ВЫ́ДЗЕЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* **1.** Выйшаўшы з саставу чаго-н., адасобіцца, стаць самастойным. *Старэйшы сын выдзеліўся з сям'і.* **2.** Вылучыцца якім-н. чынам сярод іншых. *В. смеласцю.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выйсці з арганізма. *Выдзелілася макрота.* ‖ *незак.* **выдзяля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **выдзяле́нне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.) ‖ *прым.* **выдзяля́льны**, -ая, -ае (паводле 3 знач.). *В. працэс.*

**ВЫ́ДЗЕЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* **1.** *каго-што.* Расчляніўшы або аддзяліўшы, прызначыць для якой-н. мэты. *В. частку маёмасці. В. асноўную думку. В. кватэру ў новым доме. В. звенявых.* **2.** *каго-што.* Вылучыць, адзначыць чым-н. *В. радок асаблівым шрыфтам. В. выдатнага работніка.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Вывесці з арганізма, з саставу чаго-н. *В. пот. В. цяпло.* ‖ *незак.* **выдзяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **выдзяле́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ДЗЕРЦІ**, -дзеру, -дзераш, -дзера; -дзер, -рла; -дзеры; -дзерты; *зак.* Тое, што і *выдраць.* ‖ *незак.* **выдзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ДЗЕЎБАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Тое, што і *выдзеўбці.*

**ВЫ́ДЗЕЎБЦІ** *гл.* дзяўбці.

**ВЫДЗЁЎБВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *дзяўбці* (у 1, 2 і 4 знач.).

**ВЫДЗІМА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* выдзьмуць. **2.** Выраб пустацелых прадметаў з расплаўленага шкла пры дапамозе моцнага струменя паветра (спец.).

**ВЫДЗІРА́ЦЬ** *гл.* выдраць, выдзерці.

**ВЫ́ДЗЬМУХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Дзьмухаючы, выдаліць адкуль-н. (пыл, парушыны і пад.). *В. попел з люлькі.* **2.** Дзьмухаючы на вуголле, выклікаць з'яўленне полымя. *В. агонь.* ‖ *незак.* **выдзьму́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ДЗЬМУЦЬ**, -му, -меш, -ме; -мі; -муты; *зак., што.* **1.** Выдаліць моцным струменем паветра. **2.** Вырабіць шляхам выдзімання (у 2 знач.; спец.). *В. бутэльку.* ‖ *незак.* **выдзіма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **выдзіма́нне**, -я, *н.*

**ВЫДЗЯЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* выдзеліць, выдзеліцца. **2.** звычайна *мн.* (**выдзяле́нні**, -яў). Рэчывы, выдзеленыя арганізмам.

**ВЫДЗЯЛЯ́ЦЦА** *гл.* выдзеліцца.

**ВЫДЗЯЛЯ́ЦЬ** *гл.* выдзеліць.

**ВЫ́ДМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Наносны пясчаны пагорак.

**ВЫДО́ЙВАЦЬ** *гл.* выдаіць.

**ВЫ́ДРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Млекакормячая драпежная вадаплаўная жывёліна сямейства куніцавых, а таксама яе футра. **2.** Пра злую няўжыўчывую жанчыну (разм., груб.). ‖ *прым.* **вы́дравы**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **вы́дрын**, -а (да 1 знач.).

**ВЫДРАНЯ́** *і* **ВЫДРАНЁ**, -няці, *мн.* -няты, -нят, *н.* Дзіцяня выдры.

**ВЫ́ДРАЦЬ**, -дзеру, -дзераш, -дзера; вы́драў, -рала; вы́дзеры; -драны; *зак., што.* **1.** З сілай выцягнуць, вырваць што-н. моцна ўбітае, прымацаванае і пад. *В. цвік са сцяны. В. ліст з кнігі.* **2.** Драпаючы, выдаліць, вырваць. *В. вочы.* **3.** *перан.* Атрымаць, узяць з вялікай цяжкасцю (разм.). ‖ *незак.* **выдзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ДРЭСІРАВАЦЬ** *гл.* дрэсіраваць.

**ВЫ́ДУБІЦЬ** *гл.* дубіць.

**ВЫ́ДУМАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Прыдумаць тое, чаго не было, сфантазіраваць. **2.** Прыдумаць, вынайсці, стварыць. *В. новы апарат.* ‖ *незак.* **выдумля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е, **выду́мваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **выду́мліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ДУМКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* **1.** Хлусня, тое, што выдумана. *Не трэба слухаць, усё гэта выдумкі.* **2.** Тое, што прыдумана, вынайдзена; вымысел, фантазія. *Нас здзіўляюць яго выдумкі і прапановы.* **3.** Здольнасць выдумляць. *Чалавек з выдумкай.*

**ВЫ́ДУМШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). **1.** Той, хто выдумвае што-н.; жартаўнік. *В. забаў.* **2.** Хлус, пляткар. ‖ *ж.* **вы́думшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ВЫ́ДУРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* і *чаго* (разм.) Набыць што-н. падманам, хітрыкамі. *В. грошы* або *грошай у сястры.* ‖ *незак.* **выду́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ДУШЫЦЬ**[1], -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак.* **1.** *што.* Ціснучы, націскаючы, выламаць. *В. шыбу з рамы.* **2.** *каго.* Перадушыць, знішчыць усіх, многіх. ‖ *незак.* **выду́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ДУШЫЦЬ**[2], -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., што* (разм.). Зрасходаваць духі і пад. *В. флакон адэкалону.* ‖ *незак.* **выду́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫДЫГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., перад кім-чым* (разм.). Дагаджаць каму-н., выказваць сваю адданасць. *В. перад начальствам.*

**ВЫ́ДЫХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Разавае выштурхванне паветра з лёгкіх пры выдыханні; *проціл.* ўдых.

**ВЫ́ДЫХНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* Патраціць усе сілы, знясілець. *Атака выдыхнулася* (перан.: аслабла). ‖ *незак.* **выдыха́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫ́ДЫХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* Дыханнем выштурхнуць з лёгкіх. *В. паветра.* ‖ *незак.* **выдыха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **выдыха́нне**, -я, *н.*; *прым.* **выдыха́льны**, -ая, -ае.

**ВЫ́ЕЗД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* выехаць. **2.** Месца, праз якое выязджаюць. *В. на шашу.* **3.** Коні з экіпажам і вупражжу (уст.). ‖ *прым.* **выязны́**, -а́я, -о́е. *Выязная сесія суда* (па-за месцам работы). *Выязныя вароты. В. конь* (не рабочы; уст.).

**ВЫ́ЕЗДЗІЦЬ**[1], -езджу, -ездзіш, -ездзіць; -езджаны; *зак., што.* **1.** Ездзячы, пабываць у многіх месцах, аб'ездзіць. *Выездзіў паўсотні кіламетраў за дзень.* **2.**

Утрамбаваць яздой, уездзіць. *Добра выезджаная дарога.* **3.** Ездзячы, дасягнуць якой-н. мэты (разм.). *Нічога мы сёння не выездзім.* ‖ *незак.* **вые́зджваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЕЗДЗІЦЬ**², -зджу, -здзіш, -здзіць; -зджаны; *зак., каго.* Прывучыць да язды. *В. каня.*

**ВЫ́ЕМКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* **1.** *гл.* выняць. **2.** Паглыбленне, упадзіна. *В. ў сцяне.*

**ВЫ́ЕНЧЫЦЬ** *гл.* енчыць.

**ВЫ́ЕСЦІ**, -ем, -есі, -есць; -едзім, -есце, -едуць; вы́еў, -ела; вы́еш; -едзены; *зак., што.* **1.** З'есці ўнутраную частку чаго-н. *В. начынку. Не варты выедзенага яйца* (не мае ніякага значэння; разм.). **2.** З'есці ўсё, што знаходзіцца ў чым-н. *В. міску крупніку.* **3.** *(1 і 2 ас. не ўжыв.).* Пашкодзіць, разбурыць чым-н. едкім. *Кіслата выела дзірку ў тканіне. Дым выеў вочы* (стала балюча глядзець ад дыму). ‖ *незак.* **выяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ЕХАЦЬ**, -еду, -едзеш, -едзе; -едзем, -едзеце, -едуць; -едзь; *зак.* **1.** Паехаць, адправіцца з аднаго месца ў другое. *В. з горада. В. з варот.* **2.** Едучы, з'явіцца дзе-н. *В. на лясную паляну. З-за вугла выехала машына.* **3.** Пакінуць адно месца жыхарства, пераехаўшы на другое. *Жыхары выехалі.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Плаўна вываліцца, выпасці (разм.). *Пакет выехаў з рук.* **5.** *перан., на кім-чым.* Выкарыстаць для сваёй выгады чыю-н. працу, якія-н. акалічнасці (разм., неадабр.). *В. на памочніку. В. на акалічнасцях.* ‖ *незак.* **выязджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **вы́езд**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1—3 знач.).

**ВЫ́ЖАБРАВАЦЬ** *гл.* жабраваць.

**ВЫ́ЖАЛ**, -жла, *мн.* -жлы, -жлаў, *м.* Гончы сабака.

**ВЫЖА́РЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -рын *і* **ВЫЖА́РА**, -ы, *мн.* -ы, выжа́р, *ж.* Выгаралы ўчастак балота, лесу.

**ВЫЖА́РЫШЧА**, -а, *мн.* -ы, -рышч *і* -аў, *н.* Выпаленае месца ў лесе, на балоце.

**ВЫ́ЖАЎЦІЦЬ** *гл.* жаўціць.

**ВЫ́ЖАЦЬ**¹, -жну, -жнеш, -жне; вы́жаў, -жала; вы́жні; -жаты; *зак., што.* Правесці жніво на якой-н. прасторы. *В. гектар жыта.* ‖ *незак.* **выжына́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ЖАЦЬ**², -жму, -жмеш, -жме; вы́жаў, -жала; вы́жмі; *зак., што.* У спорце: паступова падняць штангу, гіру і пад. ад грудзей уверх да поўнага выпроствання рук. *В. гіру ў пяцьдзясят кілаграмаў.* ‖ *незак.* **выжыма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **вы́жым**, -у, *м.*

**ВЫ́ЖЛА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Гончая сука.

**ВЫЖЛЯ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто загадвае гончымі сабакамі на паляванні.

**ВЫЖЫВА́ЦЬ**¹ *гл.* выжыць¹.

**ВЫЖЫВА́ЦЬ**² *гл.* выжыць².

**ВЫ́ЖЫМ** *гл.* выжаць².

**ВЫЖЫМА́ЦЬ** *гл.* выжаць².

**ВЫЖЫНА́ЦЬ** *гл.* выжаць¹.

**ВЫ́ЖЫЦЬ**¹, -жыву, -жывеш, -жыве; *зак.* Застацца жывым пасля цяжкай хваробы, ранення і пад. *Ранены выжыў.* ◊ **Выжыць з розуму** (разм.) — страціць памяць, здольнасць усведамляць. ‖ *незак.* **выжыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **выжыва́нне**, -я, *н. Барацьба за в. чалавецтва.*

**ВЫ́ЖЫЦЬ**², -жыву, -жывеш, -жыве; -жыты; *зак., каго (што)* (разм.). Прымусіць пакінуць свой дом, вымусіць пайсці адкуль-н. *В. жыльца. В. са службы.* ‖ *незак.* **выжыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **выжыва́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ЗАЛАЦІЦЬ** *гл.* залаціць.

**ВЫЗВАЛЕ́НЧЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да палітычнага, сацыяльнага вызвалення. *Вызваленчая барацьба. Нацыянальны в. рух.*

**ВЫЗВАЛІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Той, хто вызваліў ці вызваляе каго-, што-н. ад прыгнёту, уціску. *В. прыгнечаных.* ‖ *ж.* **вызвалі́цельніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **вызвалі́цельскі**, -ая, -ае.

**ВЫ́ЗВАЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* **1.** Атрымаць свабоду, стаць свабодным. *В. з палону. В. ад прыгнёту.* **2.** Пазбавіцца ад чаго-н., што сціскае, абмяжоўвае, ад непажаданага, шкоднага. *В. ад ношы. В. з абдымкаў. В. ад думак.* **3.** Стаць свабодным ад якіх-н. абавязкаў, спраў і пад. *В. ад работы. В. ад загадвання.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ачысціцца, стаць пустым, незанятым. *Кватэра вызвалілася. Месца вызвалілася.* ‖ *незак.* **вызваля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **вызвале́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ЗВАЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць свабодным. *В. арыштаваных.* **2.** *што.* Вярнуць назад (захопленае ворагам). *В. горад ад захопнікаў.* **3.** *каго (што).* Даць каму-н. магчымасць не рабіць чаго-н., пазбавіць ад чаго-н.; выратаваць ад чаго-н. *В. ад дзяжурства. Вызвалены работнік* (які выконвае грамадскія абавязкі з вызваленнем ад вытворчай работы). *В. ад пакарання.* **4.** *каго (што).* Звольніць, зняць з работы. *В. ад займаемай пасады.* **5.** *каго-што.* Выслабаніць ад чаго-н. груваcткага, цяжкага і пад. *В. рукі.* **6.** *што.* Апаражніць, ачысціць. *В. месца для шафы. В. кніжную паліцу. В. нумар у гасцініцы* (выехаць з яго). ‖ *незак.* **вызваля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **вызвале́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ЗВАЦЦА**, -завуся, -завешся, -завецца; -завіся; *зак.* Добраахвотна згадзіцца выканаць што-н. *В. ісці ў разведку. В. дапамагчы каму-н.* ‖ *незак.* **вызыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫ́ЗВАЦЬ**, -заву, -завеш, -заве; -заві; -званы; *зак.* Тое, што і *выклікаць.* ‖ *незак.* **вызыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ЗВЕРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). Моцна, пераходзячы на крык, накінуцца на каго-н. (з папрокамі, лаянкай і пад.) або паглядзець са злосцю на каго-н. ‖ *незак.* **вызвяра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫЗВО́НЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Званіць, звонам выконваць што-н. *Куранты вызвоньвалі поўнач.* ‖ *зак.* **вы́званіць**, -ню, -ніш, -ніць.

**ВЫ́ЗДАРАВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* Стаць зноў здаровым, паправіцца пасля хваробы. ‖ *незак.* **выздара́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выздараўле́нне**, -я, *н.*

**ВЫЗДАРАЎЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* выздаравець. **2.** Узнаўленне нармальнай дзейнасці арганізма пасля хваробы.

**ВЫЗНАВА́ЦЬ**, -наю́, -нае́ш, -нае́; -наём, -наяце́, -наю́ць; *незак.* **1.** *гл.* вызнаць. **2.** *што.* Адкрыта трымацца якой-н. веры, вучэння, поглядаў і пад. *В. праваслаўе. В. строгія маральныя правілы.*

**ВЫ́ЗНАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што* і *з дадан.* (разм.). **1.** Тое, што і *выведаць.* **2.** Тое, што і *спазнаць. В. тайну прыроды.* ‖ *незак.* **вызнава́ць**, -наю́, -нае́ш, -нае́; -наём, -наяце́, -наю́ць.

**ВЫЗНАЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Тое, што вызначае, выражае сабой што-н. (кніжн.). *Рытмічны в.* **2.** Кніга для даведак пры вызначэнні чаго-н. (спец.). *В. раслін.*

**ВЫЗНАЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які служыць для вызначэння чаго-н. *Вызначальныя рысы, адзнакі.* **2.** Які вызначае, абумоўлівае сабой што-н. *В. момант.* ‖ *наз.* **вызнача́льнасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́ЗНАЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас не ўжыв.*). Набыць выразны характар, раскрыцца, акрэсліцца. *Спецыфіка прадмета вызначылася не адразу.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Поўнасцю скласціся. *Нашы адносіны цалкам вызначыліся.* **3.** Вылучыцца з ліку іншых чым-н. *В. ў баі. В. сваёй храбрасцю.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *чым.* Стаць знамянальным, паказальным дзякуючы чаму-н. *Дваццатае стагоддзе вызначылася выкарыстаннем атамнай энергіі.* ‖ *незак.* **вызнача́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫ́ЗНАЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *што* і *з дадан.* Распазнаць, высветліць, разабрацца ў чым-н., дакладна ўстанавіць. *В. прычыну. В. адлегласць. В. вугал* (вылічыць). **2.** *што.* Выявіць сутнасць, раскрыць змест чаго-н. *В. творчы метад пісьменніка. В. новае навуковае паняцце.* **3.** *каго-што.* Загадзя прызначыць або намеціць наперад. *В. дзяжурных. В. далейшыя планы.* **4.** *што.* Устанавіць, назначыць. *В. сродкі на будаўніцтва. В. меру пакарання.* **5.** *што.* Абумовіць сабой, з'явіцца прычынай чаго-н. *Добрая падрыхтоўка вызначыла поспех.* **6.** *што.* Абазначыць якім-н. чынам. *В. мяжу тычкамі.* ‖ *незак.* **вызнача́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **вызначэ́нне**, -я, *н.* (да 1—4 і 6 знач.).

**ВЫ́ЗУБІЦЬ** *гл.* зубіць.

**ВЫ́ЗУБРЫЦЬ** *гл.* зубрыць.

**ВЫЗЫВА́ЦЦА** *гл.* вызвацца.

**ВЫЗЫВА́ЦЬ** *гл.* вызваць.

**ВЫІ́ГРЫВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* (разм.). Іграць на чым-н. звычайна ціха, прыглушана якую-н. мелодыю. *В. мелодыю вальса.*

**ВЫ́ЙГРАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што* і *без дап.* Набыць у выніку розыгрышу латарэі, перамагчы ў азартнай гульні. *В. мільён рублёў па аблігацыі.* **2.** *што.* Дамагчыся перамогі, узяць верх. *В. бой. В. партыю ў шахматы. В. справу.* **3.** *што* і *без дап.* Атрымаць выгаду, карысць, перавагу; выгадаць. *В. ад зніжэння цэн. В. час.* **4.** *перан., у чым.* Атрымаць, заслужыць адабральную ацэнку. *В. у чыіх-н. вачах.* ‖ *незак.* **выйграва́ць**, -раю́, -рае́ш, -рае́; -раём, -раяце́, -раю́ць. ‖ *наз.* **вы́йгрыш**, -у, *м.* (да 1—3 знач.).

**ВЫ́ЙГРЫШ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* выйграць. **2.** Тое, што выйграна. *Вялікі в. па пазыцы. Быць у выйгрышы* (выйграць; таксама перан.: аказацца ў больш выгадным становішчы). ‖ *прым.* **вы́йгрышны**, -ая, -ае. *Выйгрышная пазіцыя* (якая абяцае выйгрыш або ўдачу, поспех; перан.).

**ВЫ́ЙСЦЕ**, -я, *н.* **1.** Месца для выхаду куды-н. *В. на перон.* **2.** *перан.* Спосаб вырашэння чаго-н. *Знайсці в. з якога-н. становішча.*

**ВЫ́ЙСЦІ**, вы́йду, вы́йдзеш, вы́йдзе; вы́йшаў, -шла; вы́йдзі; *зак.* **1.** Пайсці адкуль-н., пакінуць межы чаго-н. *В. з хаты. В. з акружэння. В. са складу камісіі.* **2.** З'явіцца, апынуцца дзе-н. (пайшоўшы адкуль-н.). *В. на дарогу. Сонца выйшла з-за хмар. В. з адстаючых у перадавыя.* **3.** *перан., з чаго, з-пад чаго.* Перастаць быць у якім-н. стане, становішчы. *В. з цярпення. В. з сябе* (раззлавацца). *В. з ужытку. В. з-пад улады.* **4.** Быць выдадзеным, надрукаваным, выпушчаным, падрыхтаваным. *Кніга выйшла з друку. Фільм выйшаў на экраны.* **5.** *безас.* Прыйсціся, дастацца, выпасці. *На кожнага выйшла па мільёну рублёў.* **6.** Зрасходавацца, кончыцца. *Выйшлі ўсе запасы. Выйшаў тэрмін.* **7.** (са словам «замуж» або без яго; разм.), *за каго.* Стаць чыёй-н. жонкай. *В. замуж за інжынера. В. за ўрача.* **8.** Атрымацца, утварыцца ў выніку якой-н. апрацоўкі, падрыхтоўкі, якіх-н. дзеянняў. *Выйшла добрая рэч. З такога куска выйдзе дзве кашулі. З яго выйшаў добры майстар.* **9.** Здарыцца, адбыцца ў выніку чаго-н. *Выйшла непрыемнасць. Выйшла, што я праў.* **10.** *кім-чым.* Зрабіцца, стаць кім-н. *В. пераможцам.* **11.** *з каго-чаго.* Пра паходжанне каго-н. *В. з асяроддзя людзей працы.* ‖ *незак.* **выхо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць (да 1—10 знач.). ‖ *наз.* **вы́хад**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1, 2, 4 і 7 знач.). *На в.* (каманда выходзіць). ‖ *прым.* **выхадны́**, -а́я, -о́е (да 4 знач. і ў некаторых спалучэннях да 1 знач.). *Выхадныя даныя* (у друкаваным выданні: звесткі пра месца, год выпуску, выдавецтва). *Выхадная адтуліна. В. комін.*

**ВЫ́КАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны; *зак.* **1.** *што.* Куючы, зрабіць што-н. *В. серп.* **2.** *перан., каго-што.* Цярпліва стварыць, выхаваць (высок.). *В. непераможную армію. В. новыя кадры.* ‖ *незак.* **выко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выко́ўванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ВЫ́КАЗАЦЦА**, -кажуся, -кажашся, -кажацца; -кажыся; *зак.* **1.** Выказаць сваю думку пра што-н. *Сусветная грамадскасць выказалася супраць вайны. В. па дакладзе. В. за рэзалюцыю.* **2.** Закончыць выказванне, выказаць усё, выгаварыцца. *Дайце жанчыне в.* **3.** Сказаць, у тых ці іншых словах перадаць сваю думку. *В. дакладна і коратка.* ‖ *незак.* **выка́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́КАЗАЦЬ**, -кажу, -кажаш, -кажа; -кажы; -казаны; *зак., што.* **1.** Перадаць словамі. *В. сваю думку. В. пажаданне.* **2.** Выявіць, выкрыць тое, што павінна было ўтойвацца ад іншых. *В. сваё хваляванне.* **3.** Перадаць словамі свае адносіны да каго-, чаго-н. *В. падзяку. В. спачуванне.* ‖ *незак.* **выка́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выка́званне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**ВЫКА́ЗНІК**, -а, *м.* **1.** У граматыцы: галоўны член сказа, які абазначае дзеянне ці стан прадмета, выражанага дзейнікам. **2.** Тое, што і *выразнік. Францішак Багушэвіч — в. думак і спадзяванняў простага народа.* ‖ *прым.* **выка́знікавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ВЫ́КАЛАСАВАЦЬ** *гл.* каласаваць.

**ВЫ́КАЛАЦІЦЬ**, -лачу, -лаціш, -лаціць; -лачаны; *зак., што.* **1.** Уручную збольшага абмалаціць, абабіць. *В. жыта.* **2.** Спагнаць сілай, прымусам або з цяжкасцю атрымаць (разм.). *В. нядоімкі.* ‖ *незак.* **выкало́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КАЛАЦЬ**, -лю, -леш, -ле; -лі; -латы *і* -ланы; *зак., што.* **1.** Праткнуць чым-н. вострым. *В. вока.* **2.** Зрабіць узор, малюнак і пад., пракалваючы чым-н. вострым. *В. татуіроўку.* **3.** Высечы з сярэдзіны чаго-н. вострым. *В. кусок лёду.* ◊ **Хоць вока выкалі** — вельмі цёмна. ‖ *незак.* **выко́лваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КАЛУПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Калупаючы, выняць. *В. разынку з булкі.* **2.** Калупаючы, зрабіць паглыбленне (разм.). *В. ямку.* ‖ *незак.* **выкалу́пваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **вы́калупнуць**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты (да 1 знач.).

**ВЫ́КАЛУПІЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -плены; *зак., што.* Калупнуўшы, выняць. ‖ *незак.* **выкалу́пліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **вы́калупнуць**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты.

**ВЫКАНА́ЛЬНІЦКІ**, -ая, -ае. Тое, што і *выканаўчы* (у 2 знач.). *Выканальніцкае майстэрства.*

**ВЫКАНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які можа быць выкананы. ‖ *наз.* **выкана́льнасць**, -і, *ж.*

**ВЫКАНА́ЎЦА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *м.* і *ж.* Той, хто выконвае што-н. *В. работ. В. ролі Паўлінкі. Судовы в.* (службовая асоба, якая ажыццяўляе рашэнні суда па выканаўчых лістах).

**ВЫКАНА́ЎЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ажыццяўляе выкананне рашэнняў, пастаноў заканадаўчых органаў, практычна кіруе чым-н. *Выканаўчая ўлада. В. камітэт. В. ліст* (дакумент, па якім ажыццяўляецца судовае рашэнне). **2.** Які мае адносіны да выканаўцы — да таго, хто выступае з выкананнем якога-н. мастацкага твора. *Індывідуальная выканаўчая манера.* ‖ *наз.* **выкана́ўчасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́КАНАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Ажыццявіць, здзейсніць (наказ, заданне, задуму і пад.). *В. план. В. абяцанне. В. загад.* **2.** Праспяваць, сыграць, станцаваць. *В. песню, танец.* ‖ *незак.* **выко́нваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выкана́нне**, -я, *н. Праверка выканання. Прывесці ў выкананне. Культура выканання.*

**ВЫКАНКА́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: выканаўчы камітэт. *В. гарадскога Савета дэпутатаў.* ‖ *прым.* **выканка́маўскі**, -ая, -ае (разм.).

**ВЫ́КАПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *гл.* капа́ць. **2.** *перан., каго-што.* Знайсці, дастаць (разм.). *Дзе вы выкапалі такую кнігу?* ‖ *незак.* **выко́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КАПЕНЬ**, -пня, *м.* **1.** звычайна *мн.* (**вы́капні**, -яў). Мінералы, руда і пад., здабытыя з нетраў зямлі. *Карысныя выкапні.* **2.** Арганізм, які існаваў у далёкія геалагічныя эпохі і захаваўся ў адкладах зямной кары. *Рэшткі выкапня.* ‖ *прым.* **выкапнёвы**, -ая, -ае. *В. мамант.*

**ВЫ́КАРАБКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Карабкаючыся, вылезці, выбрацца. *В. з ямы. В. з бяды* (перан., разм.). ‖ *незак.* **выкара́бквацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́КАРАНІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніцца; *зак.* Канчаткова знішчыцца, зжыцца. *Выкараніліся старыя прымхі.* ‖ *незак.* **выкараня́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **выкарані́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́КАРАНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што.* Канчаткова знішчыць, зжыць. *В. недахопы.* ‖ *незак.* **выкараня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **выкарані́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́КАРАСКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Тое, што і *выкарабкацца.* ‖ *незак.* **выкара́скаццца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́КАРМАК**, -мка, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* **1.** Дзіцяня жывёліны, выкармленае ў хатніх умовах, без маці. **2.** *перан.* Пра нікчэмнага, подлага чалавека, выхаванага дрэнным асяроддзем (пагард.). *Фашысцкі в.*

**ВЫ́КАРМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак., каго (што).* **1.** Кормячы, выгадаваць, узгадаваць. *В. грудзямі.* **2.** Зрабіць сытым; адкарміць. *В. кабана.* ‖ *незак.* **выко́рмліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выко́рмліванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **вы́кармачны**, -ая, -ае (спец.).

**ВЫ́КАРЧАВАЦЬ**, -чую, -чуеш, -чуе; -чуй; -чаваны; *зак., што.* Карчуючы, выдаліць. *В. пні. В. бюракратызм* (перан.). ‖ *незак.* **выкарчо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выкарчо́ўванне**, -я, *н.* і **выкарчо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ВЫ́КАРЫСТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Скарыстаць, ужыць з карысцю. *В. спецыяліста. В. матэрыял. В. зручны момант. В. вопыт перадавікоў.* ‖ *незак.* **выкарысто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выкарыста́нне**, -я, *н. і* **выкарысто́ўванне**, -я, *н.*

**ВЫ́КАСАВАЦЬ**, -сую, -суеш, -суе; -суй; -саваны; *зак., каго-што* (разм.). Тое, што і *выкрасліць. В. прозвішча са спіса. В. цытату.* ‖ *незак.* **выкасо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КАСІЦЬ**, -кашу, -касіш, -касіць; -кашаны; *зак.* **1.** *што.* Скасіць дзе-н. траву і пад. *В. сенажаць.* **2.** *перан., каго-што.* Знішчыць у вялікай колькасці (агнём, пошасцю і пад.; разм.). *Некалі тут халера выкасіла многа людзей. Пажарам выкасіла* (безас.) *паўвёскі. В. кулямётам рады ворага.* ‖ *незак.* **выко́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выко́шванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **выкасны́**, -а́я, -о́е (спец.).

**ВЫ́КАЦІЦЦА**, -качуся, -кацішся, -каціцца; *зак.* **1.** Коцячыся, выйсці, выпасці адкуль-н. *Мяч выкаціўся на дарогу.* **2.** Тое, што і *выкаціць* (у 2 знач.; разм.). *З-за павароту выкацілася машына.* ‖ *незак.* **выко́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́КАЦІЦЬ**, -качу, -кацiш, -каціць; -качаны; *зак.* **1.** *што.* Коцячы, перамясціць, выдаліць. *В. бочку з падвала. В. калёсы на двор.* **2.** Хутка выехаць адкуль-н. (разм.). *На плошчу выкаціў аўтобус.* **3.** *перан., асаб.* і *безас.* Знішчыць агнём (разм.). *Пажар выкаціў палавіну вёскі.* ◊ **Выкаціць бельмы** (разм., груб.) — вытарашчыць вочы. ‖ *незак.* **выко́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КАЧАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разгладзіцца, расправіцца пры качанні. **2.** *у што.* Качаючыся, абляпіцца, запэцкацца. *В. ў снег.* **3.** *у чым.* Пакачацца. *В. ў траве.* **4.** Паправіцца, выжыць (разм.). *Доўга хварэла, а потым выкачалася.* ‖ *незак.* **выка́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́КАЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *гл.* качаць. **2.** *што.* Качаючыся, прымяць, утрамбаваць. *Конь выкачаў пасевы.* **3.** *каго-што.* Качаючы, укачаць, абляпіць у што-н., запэцкаць у што-н. *В. цеста ў муку.* ‖ *незак.* **выка́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КАШЛЯЦЦА**, -яюся, -яешся, -яецца; *зак.* (разм.). Кашляючы, ачысціць горла ад чаго-н.; адкашляцца. ‖ *незак.* **выка́шлівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́КАШЛЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; -яны; *зак., што* (разм.). Кашляючы, выплюнуць. ‖ *незак.* **выка́шліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КІДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Выжыць, выгадавацца ў беднасці, у неспрыяльных умовах.

**ВЫКІДА́ЦЦА** *гл.* выкінуцца.

**ВЫ́КІДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Выкінуць у некалькі прыёмаў (усё, многае). *В. рэчы праз акно.* **2.** *перан.* З цяжкасцю выгадаваць (разм.). *В. дзяцей.* ‖ *незак.* **выкіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выкі́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫКІДА́ЦЬ**[1] *гл.* выкінуць.

**ВЫКІДА́ЦЬ**[2] *гл.* вы́кідаць.

**ВЫКІ́ДВАЦЦА** *гл.* выкінуцца.

**ВЫКІ́ДВАЦЬ**[1] *гл.* выкінуць.

**ВЫКІ́ДВАЦЬ**[2] *гл.* вы́кідаць.

**ВЫ́КІДЫШ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дачаснае спыненне цяжарнасці. **2.** Неданошаны і не здольны выжыць плод.

**ВЫ́КІНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Кінуцца ўніз адкуль-н. *В. з акна.* **2.** Вываліцца, выпасці адкуль-н. *Кош выкінуўся з воза.* ‖ *незак.* **выкіда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **выкі́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́КІНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -кінь; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Кідаючы, выдаліць, пазбавіцца ад чаго-н. непатрэбнага, лішняга. *В. ілюстрацыю. В. грошы на вецер* (марна патраціць; разм.). *В. прагульшчыка з завода.* **2.** *перан., што.* Абвясціць, аб'явіць (разм.). *В. лозунг.* **3.** *перан., што.* Пусціць, накіраваць. *В. тавар на рынак* (пусціць у продаж; разм.). **4.** *што.* Падняць, вывесіць. *В. сцяг.* **5.** *што.* У спартыўных практыкаваннях: выставіць, высунуць рэзкім рухам. *В. руку ўперад.* **6.** *што.* Учыніць, устроіць (разм.). *В. жарт. В. штуку.* ‖ *незак.* **выкіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выкі́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **вы́кід**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 5 знач.). ‖ *прым.* **выкідны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.; спец.).

**ВЫ́КІПЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -піць; *зак.* Выпарыцца ў працэсе кіпення. *Вада выкіпела.* ‖ *незак.* **выкіпа́ць**, -а́е.

**ВЫКЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* **1.** *гл.* выкласці. **2.** Навучаючы, паведамляць, перадаваць звесткі пра што-н. *В. родную мову. В. ва ўніверсітэце.* ‖ *наз.* **выкладанне**, -я, *н.*

**ВЫКЛА́ДВАЦЬ** *гл.* выкласці.

**ВЫ́КЛАДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** *гл.* выкласці. **2.** звычайна *мн.* Разлік, вылічэнне. *Матэматычныя выкладкі.* **3.** Паходная амуніцыя салдата. *Баявая в.*

**ВЫКЛА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто выкладае які-н. вучэбны прадмет у навучальнай установе. *В. матэматыкі. Вопытны в.* ‖ *ж.* **выкла́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **выкла́дчыцкі**, -ая, -ае.

**ВЫ́КЛАПАТАЦЬ**, -пачу, -пачаш, -пача; вы́клапачы; -патаны; *зак., што.* Дабіцца клопатамі. *В. дазвол.*

**ВЫ́КЛАСЦІ**, -кладу, -кладзеш, -кладзе; -кладзі; -кладзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Выняўшы адкуль-н., пакласці. *В. пакупкі ў сумкі.* **2.** *што чым.* Пакрыць, аздобіць, вымасціць (паверхню чаго-н.). *В. сцены кафляй.* **3.** *што.* Збудаваць, вывесці. *В. фундамент.* **4.** *перан., што.* Адкрыта выказаць, паведаміць. *В. прэтэнзіі, меркаванні. В. просьбу.* ‖ *незак.* **выкла́дваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **выклада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 4 знач.). ‖ *наз.* **выкла́дванне**, -я, *н.*, **выклада́нне**, -я, *н.* (да 4 знач.), **вы́клад**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 4 знач.) *і* **вы́кладка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 2 знач.; спец.). ‖ *прым.* **выкладны́**, -а́я, -о́е (да 2 знач.; спец.).

**ВЫ́КЛЕВАЦЬ**, -клюю, -клюеш, -клюе; -клюй; -клеваны; *зак., што.* Вышчыпаць, выдраць дзюбай, выдзеўбці. *В. вока.* ‖ *незак.* **выклёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КЛЕНЧЫЦЬ** *гл.* кленчыць.

**ВЫ́КЛІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* выклікаць. **2.** Патрабаванне, запрашэнне з'явіцца куды-н. *З'явіцца па выкліку. В. у суд.* **3.** Запрашэнне, прапанова ўдзельнічаць у чым-н. *В. на спаборніцтвы. В. на дуэль.* **4.** *каму-чаму.* Выражанае позіркам, словамі, учынкамі і пад. жаданне ўступіць у барацьбу. *Кінуць в. грамадству* (звычайна пра ўчынак, што ідзе ўразрэз з чым-н. агульнапрынятым). *У яго словах прагучаў в.*

**ВЫ́КЛІКАЦЬ**, -клічу, -клічаш, -кліча; вы́кліч; -кліканы; *зак.* **1.** *каго (што).* Паклікаць адкуль-н., запрасіць, прапанаваць з'явіцца. *В. да начальства. В. спевака апладысментамі. В. вучня* (прапанаваць адказаць). **2.** *каго на што* або *з інф.* Прапанаваць прыняць удзел у чым-н., схіліць на ўзаемнае дзеянне, пачуццё і пад. *В. на спаборніцтва. В. бароцца* (мерацца сіламі ў спартыўнай барацьбе). *В. на шчырую размову.* **3.** *што.* З'явіцца прычынай узнікнення чаго-н., парадзіць. *В. апетыт. Гэта не выкліча цяжкасцей. Чым быў выкліканы пажар?* ‖ *незак.* **выкліка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **вы́клік**, -у, *м.* (у 1 і 2 знач.).

**ВЫ́КЛІКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* і *аднакр., што* і *без дап.* Гучна выкрыкнуць, вымавіць. *В. лозунг.* ‖ *незак.* **выкліка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫКЛІ́ЧНІК**, -а, *м.* У граматыцы: нязменнае слова, што непасрэдна выражае пачуццё, адчуванне, эмацыянальную рэакцыю, валявое пабуджэнне і пад., напр.: *ах, ой, ох, гэй.* ‖ *прым.* **выклі́чнікавы**, -ая, -ае.

**ВЫКЛЮЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прыстасаванне для выключэння і ўключэння электрычнага току.

**ВЫКЛЮ́ЧНА**. **1.** *часц.* Толькі. *Ён есць в. раслінную ежу.* **2.** *прысл.* Асабліва, незвычайна. *В. здольны чалавек.*

**ВЫКЛЮ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца выключэннем з агульных правіл, са звычайных норм (кніжн.). *Выключныя правы.* **2.** Асаблівы, незвычайны. *В. выпадак.* **3.** Які з'яўляецца асаблівасцю толькі дадзенай асобы, калектыву, рэчы. *Выключная заслуга вучонага. Вырабы выключнай якасці.* ‖ *наз.* **выклю́чнасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́КЛЮЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* **1.** Перастаць удзельнічаць у чым-н. *В. з гульні.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Перастаць дзейнічаць, адключыўшыся. *Матор выключыўся.* ‖ *незак.* **выключа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫ́КЛЮЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Вывесці са складу чаго-н. *В. з брыгады. В. са спісаў.* **2.** *што.* Спыніць дзеянне чаго-н. шляхам адключэння ці выключэння. *В. радыёпрыёмнік. В. ток.* ‖ *незак.* **выключа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **выключэ́нне**, -я, *н.*

**ВЫКЛЮЧЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* выключыць. **2.** Адступленне ад агульнага правіла, рэдкі выпадак. *Няма правіла без выключэння.* ◊ **За выключэннем**, *прыназ. з Р* — акрамя, апрача каго-, чаго-н. *Сабраліся ўсе, за выключэннем хворых.*

**ВЫКО́ЛВАЦЬ** *гл.* выкалаць.

**ВЫКО́НВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* **1.** *гл.* выканаць. **2.** Строга прытрымлівацца чаго-н. *В. санаторны рэжым.* **3.** Здзяйсняць, несці грамадзянскія абавязкі. *В. службу.*

**ВЫКО́ПВАЦЬ** *гл.* выкапаць.

**ВЫКО́РМЛІВАННЕ** *гл.* выкарміць.

**ВЫКО́РМЛІВАЦЬ** *гл.* выкарміць.

**ВЫКО́ЎВАННЕ** *гл.* выкаваць.

**ВЫКО́ЎВАЦЬ** *гл.* выкаваць.

**ВЫКО́ЧВАЦЦА** *гл.* выкаціцца.

**ВЫКО́ЧВАЦЬ** *гл.* выкаціць.

**ВЫКО́ШВАННЕ** *гл.* выкасіць.

**ВЫКО́ШВАЦЬ** *гл.* выкасіць.

**ВЫКРАДА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто выкрадае. *В. дакументаў.* ‖ *ж.* **выкрада́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ВЫ́КРАІЦЬ**, -краю, -краіш, -краіць; -краены; *зак., што.* **1.** *гл.* кроіць. **2.** *перан.* Удзяліць, з цяжкасцю выдзеліць для чаго-н. *В. вольную часіну. В. сродкі на пакупку лесу.* ‖ *незак.* **выкро́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КРАЙКА**, -і, *ДМ* -крайцы, *мн.* -і, -краек, *ж.* Узор для кройкі. *В. каўняра.*

**ВЫ́КРАСАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выбіць, высечы крэсівам (іскру, агонь). ‖ *незак.* **выкраса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выкрэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КРАСІЦЬ**, -рашу, -расіш, -расіць; -расаны; *зак., што.* Тое, што і *выкрасаць.*

**ВЫ́КРАСЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Закрэсліўшы, апусціць, выключыць. *В. каго-н. са спісаў. В. радок. В. з памяці каго-н.* (перан.: забыць). ‖ *незак.* **выкрэ́сліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КРАСЦІ**, -краду, -крадзеш, -крадзе; вы́краў, -крала; вы́крадзі; вы́крадзены; *зак., каго-што.* Украсці тое, што ахоўваецца. *В. сакрэтныя паперы.* ‖ *незак.* **выкрада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выкра́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫКРО́ЙВАЦЬ** *гл.* выкраіць.

**ВЫ́КРУТ**, -у, *М* -круце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Незвычайны паварот. *Сцежка з выкрутам. Скокі з выкрутамі.* **2.** *перан.* Прыём з хітрыкамі, які прымяняецца з мэтай дасягнуць чаго-н. або ўхіліцца ад чаго-н. *Гаворы без выкрутаў.*

**ВЫКРУТА́СЫ**, -аў (разм.). **1.** Мудрагелістыя, вычварныя рухі, лініі. *Язда з выкрутасамі. Выраблнць нагамі в.* **2.** Мудрагелістыя моўныя звароты. *Слоўныя в.* **3.** *перан.* Хітрыкі, дзівацтвы. *Прызнаўся ва ўсім без выкрутасаў.*

**ВЫ́КРУТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* (разм.). Выхад (з цяжкага становішча). *Няма ніякай выкруткі.*

**ВЫКРУ́ТЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Знаходлівы, скрытны. *В. гаспадарнік.* ‖ *наз.* **выкру́тлівасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́КРУЦІЦЦА**, -кручуся, -круцішся, -круціцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *з чаго.* Адкруціўшыся, выпасці. *Шруба выкруцілася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і *вывіхнуцца* (разм.). *Выкруцілася рука ў плячы.* **3.** Спрытна выслізнуць, вызваліцца. *В. з рук праціўніка.* **4.** *перан.* Выйсці з цяжкага становішча. *В. з бяды.* ‖ *незак.* **выкру́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́КРУЦІЦЬ**, -кручу, -круціш, -круціць; -кручаны; *зак., што.* **1.** *з чаго.* Выняць круцячы. *В. лямпачку.* **2.** Сціскаючы кручэннем, выдаліць ваду. *В. выпаласканую сарочку.* **3.** Тое, што і *высвідраваць. В. дрылём дзірку.* **4.** Вывіхнуць, вывернуць (разм.). *В. руку.* ‖ *незак.* **выкру́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫКРЫВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто выкрывае каго-, што-н. *В. агрэсараў. В. недахопаў.* ‖ *ж.* **выкрыва́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **выкрыва́льніцкі**, -ая, -ае.

**ВЫКРЫВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які выкрывае каго-, што-н.; уласцівы выкрыванню. *В. фельетон. Выкрывальная сіла.* ‖ *наз.* **выкрыва́льнасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́КРЫК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Гучны, адрывісты вокліч, крык. *Знадворку даносіліся выкрыкі.*

**ВЫ́КРЫКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* і *аднакр., што* і *без дап.* Галасна вымавіць, крыкнуць. *В. чыё-н. прозвішча. — Стаяць! — выкрыкнуў Фёдар.* ‖ *незак.* **выкры́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КРЫЦЬ**, -крыю, -крыеш, -крые; -крыты; *зак.* **1.** *каго-што.* Знайсці, выявіць; раскрыць, зрабіць вядомым невядомае, сакрэтнае. *В. патайное сховішча. В. злачынствы.* **2.** *што.* Растлумачыць скрыты сэнс, сутнасць чаго-н. *В. хлусню. В. антынародны характар самаўладства.* ‖ *незак.* **выкрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **выкрыва́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́КРЫШТАЛІЗАВАЦЦА** *гл.* крышталізавацца.

**ВЫ́КРЫШЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шыцца; *зак.* Паступова распадаючыся на дробныя кавалачкі, разбурыцца. *Зуб выкрышыўся.* ‖ *незак.* **выкры́швацца**, -аецца.

**ВЫКРЭ́СВАЦЬ** *гл.* выкрасаць.

**ВЫКРЭ́СЛІВАЦЬ** *гл.* выкрасліць.

**ВЫ́КУЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* (разм.). Вываліцца, выпасці. *В. з саней.* ‖ *незак.* **выку́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́КУЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што* (разм.). Выкінуць, вывернуць. *В. з лодкі.* ‖ *незак.* **выку́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КУП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* выкупіць. **2.** Плата, грошы, якімі выкупляюць. *Даць багаты в.*

**ВЫ́КУПАЦЦА** *гл.* купацца.

**ВЫ́КУПАЦЬ** *гл.* купаць.

**ВЫ́КУПІЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -плены; *зак.* **1.** *каго-што.* Вызваліць, атрымаць назад за грошы. *В. палоннага. В. закладзеную рэч.* **2.** *перан., што.* Заслужыць дараванне. *В. сваю віну чым-н.* ‖ *незак.* **выкупля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **выку́пліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **вы́купіцца**, -плюся, -пішся, -піцца; *незак.* **выкупля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца *і* **выку́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **вы́куп**, -у, *м.* (да 1 знач.) *і* **выкупле́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.); *прым.* **выкупны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**ВЫ́КУРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* **1.** *што.* Дакурыць да канца, зрасходаваць курэннем. *В. папяросу. В. усе цыгарэты.* **2.** *каго (што).* Абкурваючы, выгнаць. *В. лісу з нары.* **3.** *перан., каго (што).* Выгнаць, прымусіць пайсці, выйсці (разм.). *В. няпрошаных гасцей.* ‖ *незак.* **выку́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́КУСІЦЬ**, -кушу, -кусіш, -кусіць; -кушаны; *зак., што.* Укусіўшы зубамі, выесці, выгрызці кавалак чаго-н. *В. мякіш.* ‖ *незак.* **выку́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЛАВІЦЬ**, -лаўлю, -лавіш, -лавіць; -лаўлены; *зак., каго-што.* **1.** *з чаго.* Ловячы, здабыць, выцягнуць. *В. бервяно з вады. В. многа рыбы.* **2.** Пералавіць усіх. *В. карасёў у сажалцы.* ‖ *незак.* **вылю́ліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **вы́лаў**, -лаву, *м.* (да 1 знач.; спец.).

**ВЫ́ЛАЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак.* Тое, што і *выкласці.*

**ВЫ́ЛАЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* **1.** Выхад часткі войск з асаджанага ўмацавання для нападу на тых, хто акружае. *Зрабіць вылазку на ворага.* **2.** *перан.* Нечаканы варожы напад, выпад (неадабр.). **3.** Фізкультурная прагулка. *Лыжная в.*

**ВЫ́ЛАМАЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -маны; *зак., што.* **1.** Адламаўшы, аддзяліць. *В. палку, дубец.* **2.** Зламаўшы, выбіць, высадзіць. *В. дзверы.* ‖ *незак.* **вылó́мліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЛАЎ** *гл.* вылавіць.

**ВЫ́ЛАЯЦЦА**, -лаюся, -лаешся, -лаецца; *зак.* Сказаць брыдкае, зняважлівае слова.

**ВЫ́ЛАЯЦЬ** *гл.* лаяць.

**ВЫ́ЛЕГЧАЦЬ** *гл.* лягчаць.

**ВЫ́ЛЕГЧЫ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -лежа; *зак.* Прыпасці сцяблом да зямлі, палегчы (пра збажыну, травы). *Жыта вылегла.*

**ВЫ́ЛЕЖАЛЫ**, -ая, -ае. Які набыў патрэбныя якасці, праляжаўшы пэўны тэрмін у адпаведных умовах. *В. лён.*

**ВЫ́ЛЕЖАЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *зак.* **1.** Аднавіць свае сілы доўгім ляжаннем, добра адпачыць; паляжаць удосталь. *В. ў пасцелі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Набыць патрэбныя якасці, праляжаўшы пэўны тэрмін у адпаведных умовах. *Лён ужо вылежаўся.* ‖ *незак.* **выле́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ЛЕЖАЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; *зак.* **1.** Пралежаць дастаткова часу пасля хваробы. *Не вылежаў хваробы да канца.* **2.** Прабыць у ляжачым становішчы пэўны час. *В. дзве гадзіны ў акопе.* **3.** Тое, што і

*вылежацца* (у 2 знач.). || *незак.* **вылéжваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЛЕЗЦІ**, -зу, -зеш, -зе; -лез, -зла; -лезь; *зак.* **1.** Выйсці адкуль-н., чапляючыся за што-н. рукамі і нагамі. *В. з глыбокага рова.* **2.** Выйсці адкуль-н., прыклаўшы намаганні. *В. з вагона. В. з даўгоў* (перан., разм.). **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выступіць, паказацца адкуль-н., выбіцца; прабіцца. *Косы вылезлі з-пад хусткі. Вылезла маладая траўка.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выпасці (пра валасы, шэрсць); выліняць. *Вылезла шэрсць.* || *незак.* **вылáзіць**, -лáжу, -лáзіш, -лáзіць.

**ВЫ́ЛЕПІЦЬ** *гл.* ляпіць.

**ВЫ́ЛЕЦЕЦЬ**, -лечу, -леціш, -леціць; -леці; *зак.* **1.** Летучы, накіравацца, адправіцца куды-н. *Птушка вылецела з гнязда. Пасажыр вылецеў у Маскву. Вылецела з галавы* (перан.: знікла, забылася). **2.** Летучы, з'явіцца адкуль-н. *Самалёты вылецелі з-за хмары.* **3.** *перан.* Аказацца звольненым, выключаным адкуль-н. (разм.). *В. са службы.* || *незак.* **вылятáць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **вы́лет**, -у, *М* -леце, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**ВЫЛЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які паддаецца лячэнню. *Вылечная хвароба.* || *наз.* **вылéчнасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́ЛЕЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* Стаць здаровым у выніку лячэння. *В. пасля ранення.* || *незак.* **вылéчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ЛЕЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што.* Лечачы, зрабіць здаровым. || *незак.* **вылéчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЛІВАК**, -ліўка, *мн.* -ліўкі, -ліўкаў, *м.* Яйцо, знесенае без шкарлупіны.

**ВЫ́ЛІЗАЦЬ**, -ліжу, -ліжаш, -ліжа; -ліжы; -лізаны; *каго-што.* Ачысціць лізаннем. *В. талерку. Кошка вылізала кацяня.* || *незак.* **вылі́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЛІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* вылічыць. **2.** Утрыманая сума грошай. *Невялікі в.* ◊ **За вылікам** *каго-чаго, у знач. прыназ.* — за выключэннем, акрамя каго-, чаго-н.

**ВЫ́ЛІНЯЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які страціў першапачатковы колер. *Вылінялая майка.* **2.** Які скончыў ліняць (пра жывёл, птушак).

**ВЫ́ЛІНЯЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -яе; *зак.* **1.** *гл.* ліняць. **2.** Канчаткова паліняць. *Матэрыял выліняў.*

**ВЫ́ЛІТЫ**, -ая, -ае. Вельмі падобны на каго-н. *Вадзік — в. бацька.*

**ВЫ́ЛІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -льецца; *зак.* **1.** *з чаго.* Выцечы, выйсці вон (пра вадкасць). *Вада вылілася з бочкі.* **2.** *перан., у што.* Прыняць той або іншы выгляд; ператварыцца. *Раздражненне вылілася ў форму пратэсту.* || *незак.* **вылівáцца**, -áецца.

**ВЫ́ЛІЦЬ**[1], -лью, -льеш, -лье *і* -лію, -ліеш, -ліе; вы́лі; -літы; *зак., што.* **1.** *з чаго.* Выдаліць, прымусіць выцечы адкуль-н. (вадкасць). *В. ваду з вядра.* **2.** *перан.* Даць выхад якім-н. пачуццям, выказаць. *В. гнеў на каго-н. В. усё, што было на душы.* **3.** Зрабіць шляхам ліцця, адліць. *В. звон з медзі.* || *незак.* **вылівáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ВЫ́ЛІЦЬ**[2] *гл.* ліць[2].

**ВЫЛІЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па вылічальнай тэхніцы. **2.** Прыбор, які робіць вылічэнні. || *прым.* **вылічáльніцкі**, -ая, -ае.

**ВЫЛІЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для вылічэння, звязаны з вылічэннем. *Вылічальныя машыны. В. цэнтр.*

**ВЫ́ЛІЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* **1.** Падлічыўшы, вызначыць. *В. памер даходаў. В. кошт будоўлі.* **2.** Утрымаць пры расплаце. *В. запазычанасць.* || *незак.* **вылічáць**, -áю, -áеш, -áе *і* **вылі́чваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **вылічэ́нне**, -я, *н. і* **вы́лік**, -у, *м.* (да 2 знач.).

**ВЫЛО́МЛІВАЦЬ** *гл.* выламаць.

**ВЫЛО́ЎЛІВАЦЬ** *гл.* вылавіць.

**ВЫ́ЛУДЗІЦЬ** *гл.* лудзіць.

**ВЫ́ЛУЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выняць, лузаючы. *В. боб са струкоў.* || *незак.* **вылу́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЛУПІЦЦА**, -плюся, -пішся, -піцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выйсці з яйца (пра птушанят). **2.** Утаропіцца шырока расплюшчанымі вачамі (разм.). *Што ты на мяне вылупіўся?* || *незак.* **вылу́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ЛУПІЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -плены; *зак.* (разм.). **1.** *што.* З сілай выдраць. *В. ліст з кнігі. В. прабой з вушака.* **2.** *каго.* Набіць, адлупцаваць. ◊ **Вылупіць вочы** (разм., неадабр.) — пільна паглядзець шырока расплюшчанымі вачамі. || *незак.* **вылу́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЛУПЦАВАЦЬ** *гл.* лупцаваць.

**ВЫ́ЛУЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* **1.** Вызначыцца чым-н. сярод іншых. *В. сваімі здольнасцямі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выйсці, выступіць з чаго-н. у выніку пэўных працэсаў. *У працэсе рэакцыі вылучылася соль.* || *незак.* **вылучáцца**, -áюся, -áешся, -áецца. || *наз.* **вылучэ́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ЛУЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Адабраўшы, адасобіць ад агульнай масы; выдзеліць. *В. сваіх авечак з чарады. В. галоўнае ў творы. Яго вылучылі як лепшага вучня.* **2.** *каго (што).* Прапанаваць, выставіць для абмеркавання, паставіць на больш адказную работу. *В. кандыдата на пасаду старшыні.* **3.** *што.* Аддаць, выдзеліць каму-н. на карыстанне. *На будаўніцтва вылучылі сродкі і тэхніку.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Выпусціць, выдзеліць. *В. пах.* || *незак.* **вылучáць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **вылучэ́нне**, -я, *н. В. кандыдата ў дэпутаты.*

**ВЫЛУЧЭ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Перадавы супрацоўнік, вылучаны на якую-н. адказную работу. || *ж.* **вылучэ́нка**, -і, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **вылучэ́нскі**, -ая, -ае.

**ВЫ́ЛУШЧЫЦЬ**, -шчу, -шчыш, -шчыць; -шчаны; *зак., што.* **1.** Выняць, лушчачы; вылузаць. *Вавёрка вылушчыла зярняты з яловай шышкі.* **2.** Выдаліць хірургічным спосабам (спец.). *В. костку.* || *незак.* **вылу́шчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЛЮДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* Найгоршы сярод людзей; вырадак. *В. роду чалавечага.*

**ВЫЛЯТА́ЦЬ** *гл.* вылецець.

**ВЫЛЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Тое, што і *лячэнне* (афіц.). *Быць на вылячэнні ў шпіталі.* **2.** Тое, што і *выздараўленне. Поўнае в.*

**ВЫ́МАВІЦЬ**, -маўлю, -мавіш, -мавіць; -маўлены; *зак., што.* Выгаварыць, сказаць. *В. слова.* || *незак.* **вымаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ВЫМАГА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца вымаганнем. || *ж.* **вымагáльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. || *прым.* **вымагáльніцкі**, -ая, -ае.

**ВЫМАГА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *што.* Дамагацца чаго-н. шантажом, прымусам, сілай. *В. грошы.* **2.** *чаго, са злуч.* «каб» *і без дап.* Патрабаваць. *В. да сябе ўвагі. В., каб усё было дакладна выканана.* || *наз.* **вымагáнне**, -я, *н.*

**ВЫ́МАЗАЦЦА** *гл.* мазацца.

**ВЫ́МАЗАЦЬ**, -мажу, -мажаш, -мажа; -маж; -мазаны; *зак., што.* **1.** Намазаць, нацерці чым-н., што фарбуе. *В. печ глінай.* **2.** *у што.* Запэцкаць, замазаць (разм.). *В. адзенне ў дзёгаць.* || *незак.* **вымáзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́МАЙСТРАВАЦЬ** *гл.* майстраваць.

**ВЫ́МАКЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Прамоклы, мокры. *Вымаклае адзенне.* **2.** Які загінуў ад празмернай вільгаці. *Вымаклыя пасевы.* || *наз.* **вы́макласць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ВЫ́МАКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; вы́мак, -кла; -ні; *зак.* **1.** Стаць зусім мокрым. *В. на дажджы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Набыць якія-н. уласцівасці, выгляд, паляжаўшы ў вадзе, вадкасці. *Селядзец вымак* (стаў менш салёным). *Лён вымак.* || *незак.* **вымакáць**, -áю, -áеш, -áе (да 2 знач.).

**ВЫ́МАЛЕВАЦЬ**, -люю, -люеш, -люе; -люй; -леваны; *зак., што.* **1.** Малюючы, старанна і акуратна перадаць кожную дэталь; старанна намаляваць. *В. партрэт.* **2.** Пакрыць слоем фарбы; пафарбаваць (разм.). *В. машыну ў зялёны колер.* **3.** Расходаваць на афарбоўку (разм.). *В. усю фарбу.* || *незак.* **вымалёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́МАЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Выпрасіць, дабіцца мальбамі. *В. прабачэнне.* || *незак.* **вымóльваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́МАНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак.* **1.** *каго (што).* Вабячы, прымусіць выйсці адкуль-н. *В. драпежніка з нары.* **2.** *што.* Набыць хітрыкамі, падманам. *В. грошы.* || *незак.* **вымáньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́МАНТАЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што* (разм.). Тое, што і *выманіць* (у 2 знач.).

**ВЫ́МАРАЗІЦЬ**, -ражу, -разіш, -разіць; -ражаны; *зак.* **1.** *што.* Выстудзіць халодным паветрам, марозам. *В. хату.* **2.** *каго-што.* Знішчыць марозам. *В. пасевы.* **3.** *што.* Вытрымліваючы на марозе, высу-

шыць або выдаліць часцінкі вады. *В. бялізну.* ‖ *незак.* **вымаро́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́МАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -аны; *зак., каго (што).* Знішчыць атрутай і пад. *В. прусакоў.*

**ВЫ́МАСЦІЦЬ** *гл.* масціць.

**ВЫ́МАТАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Знясіліцца, змардавацца. *Выматаўся за дзень ушчэнт.* ‖ *незак.* **вымо́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́МАТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Знясіліць, змардаваць, змучыць. *В. усе сілы. Дарога мяне выматала. В. душу.* **2.** *што.* Прымусіць пастунова выдаткаваць; выцягнуць, забраць па частках усё. *В. усе грошы.* ‖ *незак.* **вымо́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫМАЎЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* Перадача голасам гукаў мовы. *Выразнае в. Беларускае літаратурнае в.*

**ВЫМАЎЛЕ́НЧЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да вымаўлення. *Вымаўленчыя нормы.*

**ВЫМАЎЛЯ́ЦЬ** *гл.* вымавіць.

**ВЫ́МАХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Вырасці, стаць высокім. *Ну і вымахаў жа хлопец!* ‖ *незак.* **вымахваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫМА́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** *гл.* вымахаць. **2.** *чым.* Махаць то ў адзін, то ў другі бок; размахваць. *В. рукой у паветры.*

**ВЫМА́ЦЬ** *гл.* выняць.

**ВЫ́МАЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* (разм.). Стаць зусім мокрым. ‖ *незак.* **вымо́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́МАЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць зусім мокрым. *Дождж нас вымачыў да ніткі.* **2.** *што.* Пратрымаць у вадзе, вадкасці для надання якіх-н. патрэбных уласцівасцей. *В. селядцы.* ‖ *незак.* **вымо́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́МЕНЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; -яны; *зак., каго-што на каго-што.* Набыць абменам. *В. старую рэч на новую.* ‖ *незак.* **выме́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́МЕРАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Дакладна вызначыць велічыню, памеры чаго-н. *В. плошчу пакоя.* ‖ *незак.* **вымяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **вымяр́энне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **вымяра́льны**, -ая, -ае. *Вымяральныя прыборы.*

**ВЫ́МЕРЗЛЫ**, -ая, -ае. Які загінуў ад марозу, вымерз. *Вымерзлыя пладовыя дрэвы.* ‖ *наз.* **вы́мерзласць**, -і, *ж.*

**ВЫ́МЕРЗНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -мерз, -зла; *зак.* Загінуць ад марозу, холаду (пра расліннасць, насякомых). *Рунь вымерзла.* ‖ *незак.* **вымярза́ць**, -а́е.

**ВЫ́МЕРКАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны; *зак., што.* **1.** Знайсці, адшукаць шляхам дакладнага разліку, выгадаць. *В. грошы на рамонт кватэры. В. свабодную гадзіну.* **2.** Выбраць зручны момант. **3.** Правільна разлічыць, загадзя вызначыць. *Усё вымеркавалі, дзе што будзем садзіць і сеяць.* ‖ *незак.* **вымярко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́МЕРЛЫ**, -ая, -ае. Які вымер, не пакінуўшы патомства (пра род, сямейства і пад.), або які знік, перавёўся (пра расліны). *Мамант — вымерлая жывёліна.*

**ВЫМЕ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Паказчык, які вызначае аб'ём або якасць работы.

**ВЫМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які можа быць вымераны. *Вымерная велічыня.* **2.** Які служыць для вымярэння. *Вымерная рулетка.*

**ВЫ́МЕРЦІ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -мра; -мер, -рла; *зак.* **1.** Поўнасцю знікнуць у выніку гібелі, смерці. *Племя вымерла.* **2.** Абязлюдзець, апусцець у выніку масавай смерці жыхароў ад голаду, эпідэміі. *Вёска вымерла ад эпідэміі.* ‖ *незак.* **выміра́ць**, -а́е. ‖ *наз.* **выміра́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́МЕСІЦЬ**, -мешу, -месіш, -месіць; -мешаны; *зак., што.* Месячы, размінаючы, канчаткова прыгатаваць. *В. цеста, гліну.* ‖ *незак.* **выме́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́МЕСЦІ**, -мету, -мецеш, -меце; -мецем, -мецеце, -метуць; -меў, -мела; вы́меці; -мецены; *зак., што.* **1.** Падмесці. *В. падлогу.* **2.** *з чаго.* Метучы, выдаліць, выкінуць. *В. смецце з хаты.* ‖ *незак.* **вымята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́МЕШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Добра перамяшаць. ‖ *незак.* **выме́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫМІРА́ННЕ** *гл.* вымерці.

**ВЫМІРА́ЦЬ** *гл.* вымерці.

**ВЫМО́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -мо́ў, *ж.* Дысцыплінарнае спагнанне, якое даецца за якую-н. правіннасць. *Аб'явіць вымову. Суровая в.*

**ВЫМО́ІНА**, -ы, *мн.* -ы, -мо́ін, *ж.* Паглыбленне ў грунце, размытае бягучай вадой.

**ВЫМО́ЛЬВАЦЬ** *гл.* вымаліць.

**ВЫМО́ТВАЦЦА** *гл.* выматацца.

**ВЫМО́ТВАЦЬ** *гл.* выматаць.

**ВЫМО́ЧВАЦЦА** *гл.* вымачыцца.

**ВЫМО́ЧВАЦЬ** *гл.* вымачыць.

**ВЫ́МПЕЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вузкі доўгі флаг на мачце ваеннага судна. **2.** Вузкі трохвугольны флажок, які служыць прыметай чаго-н. *Пераходны в.* **3.** Забяспечаны доўгім флажком або стужкай футляр, у якім змешчаны прадмет, які скідаецца з лятальнага апарата. *В. на Месяцы.*

**ВЫ́МУРАВАЦЬ** *гл.* мураваць.

**ВЫ́МУСІЦЬ**, -мушу, -мусіш, -мусіць; -мушаны; *зак., каго* і *з інф.* Прымусіць зрабіць, выканаць што-н. *В. ворага здацца. Вымушаны адказ* (не добраахвотны). ‖ *незак.* **вымуша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́МУЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* (разм.). **1.** *што.* З цяжкасцю, з намаганнем зрабіць, стварыць. *В. згоду. В. верш.* **2.** *каго.* Знясіліць, змардаваць. *В. каня далёкай дарогай.* ‖ *незак.* **выму́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́МУШАНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* вымусіць. **2.** Ненатуральны, не свабодны. *Вымушана* (прысл.) *усміхнуцца.* ‖ *наз.* **вы́мушанасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́МУШТРАВАЦЬ** *гл.* муштраваць.

**ВЫ́МЫСЕЛ**, -слу, *мн.* -слы, -слаў, *м.* **1.** Тое, што створана фантазіяй, уяўленнем. *Казачны в.* **2.** Выдумка, хлусня. *Не верыць вымыслам.*

**ВЫ́МЫЦЦА** *гл.* мыць.

**ВЫ́МЫЦЬ** *гл.* мыць.

**ВЫ́МЯ**, -мя, -мю, -мя, -мем, -мі; *мн.* вы́мі, -мяў, -мям, вы́мі, -мямі, -мях; *н.* Орган з малочнымі залозамі і саскамі ў самак млекакормячых. *Каровіна в.*

**ВЫМЯРА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Прылада, прызначаная для вымярэння. **2.** Тое, што і *вымернік.*

**ВЫМЯРА́ЛЬНЫ** *гл.* вымераць.

**ВЫМЯРА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* Вызначацца якой-н. мерай. *Запасы цукру вымяраюцца сотнямі тон.*

**ВЫМЯРА́ЦЬ** *гл.* вымераць.

**ВЫМЯРЗА́ЦЬ** *гл.* вымерзнуць.

**ВЫМЯРКО́ЎВАЦЬ** *гл.* вымеркаваць.

**ВЫМЯРЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* вымераць. **2.** Працяжнасць вымяральнай велічыні ў якім-н. напрамку. *Геаметрычная фігура ў трох вымярэннях.*

**ВЫМЯТА́ЦЬ** *гл.* вымесці.

**ВЫ́НАЙСЦІ**, -найду, -найдзеш, -найдзе; -найшаў, -шла; -найдзі; -найдзены; *зак., што.* Працуючы творча, стварыць што-н. новае, невядомае раней. *В. новую машыну. В. прыстасаванне да механізма.* ‖ *незак.* **вынахо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **вынахо́дства**, -а, *н.*

**ВЫ́НАС** *гл.* вынесці.

**ВЫ́НАСІЦЬ**, -нашу, -насіш, -насіць; -нашаны; *зак.* **1.** *што.* Перанесці за некалькі прыёмаў усё, поўнасцю. *В. сена з балота.* **2.** *каго.* Пра маці: пранасіць у сабе да родаў. *В. дзіця.* **3.** *перан., што.* Абдумаць да поўнай яснасці, закончанасці. *В. новы замысел.* **4.** *што.* Выцерці, працерці ў выніку доўгага нашэння. *Вынашаны касцюм.* ‖ *незак.* **выно́шваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2—4 знач.).

**ВЫНАСНЫ́**, -а́я, -о́е. Звязаны з вынасам, знаходжаннем па-за чым-н., вынесены куды-н. *Вынасная графа. Вынаснае судна.*

**ВЫНАХО́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Знаходлівы, здольны ствараць, вынаходзіць. *В. чалавек. В. розум.* ‖ *наз.* **вынахо́длівасць**, -і, *ж.*

**ВЫНАХО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто вынайшаў што-н. *Нарада вынаходнікаў і рацыяналізатараў.* ‖ *ж.* **вынахо́дніца**, -ы, -ніц. ‖ *прым.* **вынахо́дніцкі**, -ая, -ае.

**ВЫНАХО́ДСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** *гл.* вынайсці. **2.** Тое, што вынайдзена, створана вынаходнікам. *Атрымаць аўтарскае пасведчанне на в.*

**ВЫ́НЕСЦІ**, -несу, -несеш, -несе; -нес, -несла; -несі; -несены; *зак.* **1.** *каго-што.* Несучы, выдаліць адкуль-н., аднесці за межы чаго-н. *В. мэблю з кватэры.* **2.** *каго-што.* Перамясціць куды-н., высунуць. *Плынь вынесла лодку на сярэдзіну ракі. В.*

*пытанне на сход* (перан.). *В. дробавы лік за дужкі.* **3.** *перан., што.* Атрымаць, набыць у выніку знаёмства з чым-н. *В. ўражанне.* **4.** *перан., што.* Прыняўшы рашэнне, аб'явіць (афіц.). *В. падзяку. В. пастанову. В. прысуд.* **5.** *што.* Вытрымаць, выцерпець. *Цяжка было в. гэта гора. Не мог в. грубасці.* ◊ **Ледзь вынесці ногі** (разм.) — з цяжкасцю пазбегнуць небяспекі, выратавацца. ‖ *незак.* **выно́сіць**, -но́шу, -но́сіш, -но́сіць. ‖ *наз.* **вы́нас**, -у, *м.* (да 1 і 2 знач.) *і* **вынясе́нне**, -я, *н.* (да 2 і 4 знач.).

**ВЫ́НЕСЦІСЯ**, -несуся, -несешся, -несецца; вы́нессяся, -неслася; -несіся; *зак.* Імкліва выехаць, выбегчы адкуль-н. *На ўзлесак вынесліся коннікі.* ‖ *незак.* **выно́сіцца**, -но́шуся, -но́сішся, -но́сіцца.

**ВЫ́НІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Канчатковы паказчык якіх-н. дзеянняў, намаганняў і пад. *Падвесці вынікі работы за дзень. Вынікі конкурсу.* **2.** Паказчык майстэрства (звычайна спартыўнага). *В. плаўца. В. забегу на сто метраў. Лепшы в. дня.* **3.** Тое, што вынікае з чаго-н., з'яўляецца лагічным вывадам. *Поспехі з'яўляюцца вынікам напружанай штодзённай працы. Пажар быў вынікам нядбайнага абыходжання з агнём.*

**ВЫНІКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** З'яўляцца, паўставаць. *Слупы вынікалі з-за ўзгоркаў і зноў знікалі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). З'яўляцца лагічным вынікам, узнікаць з чаго-н. *Як вынікае са сказанага.* ‖ *зак.* **вы́нікнуць**, -ну, -неш, -не; -ні.

**ВЫНІКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** З падагульненымі вынікамі, паказчыкамі. *В. рахунак.* **2.** Які даў або дае добрыя вынікі; рэзультатыўны. *Выніковая сустрэча.*

**ВЫ́НІШЧЫЦЬ**, -шчу, -шчыш, -шчыць; -шчаны; *зак., каго-што.* Поўнасцю знішчыць. *В. ваўкоў.* ‖ *незак.* **вынішча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **вынішчэ́нне**, -я, *н.*

**ВЫНО́СІЦЦА** *гл.* вынесціся.

**ВЫНО́СІЦЬ** *гл.* вынесці.

**ВЫНО́СЛІВЫ**, -ая, -ае. Фізічна моцны, трывалы, здольны многа вынесці (у 5 знач.). *В. конь. В. спартсмен.* ‖ *наз.* **выно́слівасць**, -і, *ж.*

**ВЫНО́ШВАЦЬ** *гл.* вынасіць.

**ВЫ́НЫРНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* **1.** Нырнуўшы, усплысці, паказацца з вады. **2.** *перан.* Раптоўна з'явіцца. *Месяц вынырнуў з туману.* ‖ *незак.* **вынnetworḱць**

**ВЫ́НЯНЬЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго (што).* Рупліва даглядаючы, выгадаваць. *В. дзіця.* ‖ *незак.* **выня́ньчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫНЯСЕ́ННЕ** *гл.* вынесці.

**ВЫ́НЯЦЬ**, вы́му, вы́меш, вы́ме; вы́мі; выняты; *зак., што.* Узяць знутры або перамясціць знутры наверх. *В. газеты з паштовай скрынкі. В. рукі з кішэняў.* ‖ *незак.* **выма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ПАГАДЗІЦЦА**, -дзіцца; *безас., зак.* Аб надыходзе яснага сонечнага надвор'я. *К вечару выпагадзілася.* ‖ *незак.* **выпаго́джвацца**, -аецца.

**ВЫ́ПАД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У фехтаванні, гімнастыцы: выстаўленне сагнутай нагі ў якім-н. напрамку з упорам тулава на гэту нагу. *В. наперад.* **2.** *перан.* Варожае выступленне, нядобразычлівая выхадка супраць каго-, чаго-н. *Злосны в.*

**ВЫ́ПАДАК**, -дку, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* **1.** Тое, што здарылася, здарэнне. *В. з жыцця. Няшчасны в. У такім выпадку* (пры такой умове, пры дадзеных абставінах). *На ўсякі в.* (у прадбачанні чаго-н. нечаканага). *У крайнім выпадку* (пры крайняй неабходнасці). *У асобных выпадках* (калі-нікалі). *Ні ў якім выпадку* (ніколі, ні пры якіх умовах, ні за што). *У тым выпадку, калі...* (калі здарыцца так, што...). *У адваротным выпадку* (калі будзе наадварот, не так). *У лепшым выпадку* (пры самых спрыяльных абставінах). **2.** Зручны момант. *Падвярнуўся в. Упусціць в.* **3.** Тое, што і *выпадковасць* (у 2 знач.). *Поспех работы не можа залежаць ад выпадку.* ◊ **Ад выпадку да выпадку** — калі-нікалі, не пастаянна. **Ва ўсякім выпадку** — пры любых абставінах, незалежна ні ад чаго. **З выпадку** — з-за, з прычыны чаго-н. **Пры выпадку** (разм.) — калі будзе магчымасць. *Пры выпадку перадам усё яму.* **У выпадку чаго** — калі адбудзецца, надыдзе што-н. *Забеспячэнне ў выпадку хваробы.* **У выпадку чаго** (разм.) — калі будзе патрэба. *У выпадку чаго, паведамі мне.*

**ВЫПАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* выпасці. **2.** У выразе: **не выпадае** — 1) няма магчымасці. *Узяцца за гэту работу ўсё не выпадае;* 2) няма зручнага моманту. *Усё былі незнаёмыя людзі, і падыходзіць да іх не выпадала;* 3) нельга, непрыстойна. *Ён — інтэлігент, і яму, як ён лічыць, не выпадае займацца такой работай.*

**ВЫ́ПАДКАМ**, *прысл.* **1.** Тое, што і *выпадкова* (у 1 знач.). *Сустрэча в.* **2.** *у знач. пабочн. сл.* Дарэчы, між іншым. *Ты, в., не ў магазін ідзеш?*

**ВЫПАДКО́ВА**, *прысл.* **1.** Нечакана, непрадбачна. *В. сустрэцца.* **2.** *у знач. пaбоч. сл.* Тое, што і *выпадкам* (у 2 знач.).

**ВЫПАДКО́ВАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* выпадковы. **2.** Выпадковая акалічнасць. *Перашкодзіла в. Па шчаслівай выпадковасці.*

**ВЫПАДКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які паявіўся, узнік непрадугледжана. *Выпадковая памылка. В. госць. Выпадковае знаёмства.* **2.** Які бывае не заўсёды, ад выпадку да выпадку. *Выпадковыя заработкі.* ‖ *наз.* **выпадко́васць**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.*

**ВЫ́ПАІЦЬ**, -паю, -паіш, -паіць; -паены; *зак., каго (што).* Выкарміць пойлам. *В. цяля.* ‖ *незак.* **выпо́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПАКЛАДАЦЬ** *гл.* пакладаць.

**ВЫ́ПАКУТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; -таваны; *зак.* **1.** Перанесці многа пакут. *Колькі прыйшлося в.!* **2.** *што.* Дамагчыся пакутамі. *В. сваё шчасце.*

**ВЫ́ПАЛАСКАЦЬ** *гл.* паласкаць.

**ВЫ́ПАЛАЦЬ** *гл.* палоць.

**ВЫПА́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Тое, што і *выгар.*

**ВЫ́ПАЛІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ліцца; *безас., зак.* Кончыць паліцца. *Выпалілася ў печы.* ‖ *незак.* **выпа́львацца**, -аецца.

**ВЫ́ПАЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* **1.** Спаліць да канца, цалкам. *Пажар выпаліў увесь лес. Сонца выпаліла пасевы.* **2.** Ачысціць апальваннем. *В. бляху.* **3.** Зрабіць знак, рысунак на чым-н. распаленым прадметам. *В. узор. В. кляймо.* **4.** *што і ў чым.* Кончыць паліць, прапаліць. *В. у печы.* **5.** Вырабіць абпальваннем. *В. цэглу.* **6.** Сказаць адным дыхам (разм.). *В. навіну.* ‖ *незак.* **выпа́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выпа́льванне**, -я, *н.* (да 1—5 знач.).

**ВЫ́ПАМПАВАЦЬ**, -пую, -пуеш, -пуе; -пуй; -паваны; *зак., што.* Пампуючы, выдаліць. *В. ваду.* ‖ *незак.* **выпампо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПАРАЖНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што.* Зрабіць парожнім, апаражніць. *В. пасудзіну.* ‖ *незак.* **выпаражня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ВЫПАРА́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* Здольнасць да выпарэння. *В. эфіру.*

**ВЫ́ПАРАТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* (спец.). Шкурка неданошанай жывёліны, вынятай з жывата самкі. *Авечы в.* ‖ *прым.* **вы́параткавы**, -ая, -ае.

**ВЫ́ПАРАЦЬ**, -ру, -раш, -ра; -раны; *зак.* **1.** *што.* Разрэзаўшы па швах, выняць. *В. рукаў.* **2.** *што.* Выкалаць чым-н. вострым. *В. вочы.* **3.** *каго.* Поручы, прымусіць вылезці адкуль-н. *В. лісу з нары.* **4.** *што.* Знайсці, адшукаць (разм.). *В. рэдкую кніжку.* ‖ *незак.* **выпо́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫПА́РЫНА**, -ы, *ж.* Пот, які выступае на целе (звычайна ў хворага пасля гарачкі). *Пакрыцца выпарынай.*

**ВЫ́ПАРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ператварыцца ў пару. *Вада выпарылася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Знікнуць, прапасці (разм.). *Радасць умомант выпарылася.* **3.** Папарыцца. *В. ў лазні.* ‖ *незак.* **выпара́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **выпа́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **выпарэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ВЫ́ПАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* **1.** *што.* Ператварыць у пару. *В. вадкасць.* **2.** *што.* Згусціць, ачысціць, ператвараючы лішнюю вільгаць у пару. *В. соль* (здабыць з салёнай вады). **3.** *каго (што).* Добра папарыць венікам у лазні. **4.** *каго-што.* Парай знішчыць або ачысціць. *В. дзежку. В. прусакоў.* ‖ *незак.* **выпара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выпа́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выпарэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.) *і* **выпа́рванне**, -я, *н.*

**ВЫПАРЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* выпарыцца, выпарыць. **2.** звычайна *мн.* (**выпарэ́нні**, -яў). Рэчыва, якое выпараецца. *Шкодныя выпарэнні.*

**ВЫ́ПАС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Месца, дзе пасуць жывёлу; паша. *Лугавы в.* ‖ *прым.* **выпасны́**, -а́я, -о́е.

**ВЫ́ПАСВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -віцца; *зак.* Адкарміцца на пашы. *Цяляты выпасвіліся.* ‖ *незак.* **выпа́свацца**, -аецца.

**ВЫ́ПАСВІЦЬ**, -су, -сеш *і* -свіш, -се *і* -свіць; -сем *і* -свім, -сеце *і* -свіце, -суць *і* -свяць; вы́пасі; -сены *і* -свены; *зак.* **1.** *каго.* Адкарміць на пашы. *В. авечак.* **2.** *што.* Патравіць выпасам. *В. сенажаць.* **3.** *што.* Зарабіць пасьбой (разм.). *Выпасвіў шмат грошай.* ‖ *незак.* **выпа́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПАСЦІ**, -паду, -падзеш, -падзе; вы́падзі; *зак.* **1.** Вываліцца, упасці адкуль-н. *Пісьмо выпала з кнігі. Люлька выпала з зубоў. В. з воза.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Знікнуць, страціцца; застацца незаўважаным. *Выпала з памяці тая назва. Яго збянтэжанасць не выпала з-пад маёй увагі.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра ападкі: упасці на зямлю. *Уначы выпала раса. Выпаў ранні снег.* **4.** *безас.* Давесціся. *Аднойчы мне выпала схадзіць у музей. Як выпадзе* (як удасца). **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Удацца, атрымацца. *Выпаў добры ўраджай.* ‖ *незак.* **выпада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ПАТ**, -у, *М* -паце, *м.* (спец.). Збіранне вадкасці з крывяносных сасудаў у якой-н. поласці цела пры запаленні.

**ВЫ́ПАТРАБАВАЦЬ**, -бую, -буеш, -буе; -буй; -баваны; *зак.* **1.** *што.* Патрабаваннем дабіцца, атрымаць. *В. даведку.* **2.** *каго.* Прымусіць з'явіцца куды-н. па выкліку. *В. сведак у суд.*

**ВЫ́ПАТРАШЫЦЬ** *гл.* патрашыць.

**ВЫ́ПАЎЗАК**, -зка, *мн.* -зкі, -зкаў, *м.* **1.** Адзін з відаў дажджавога чарвяка. **2.** Тое, што і *выпоўзіны.* ‖ *прым.* **вы́паўзкавы**, -ая, -ае.

**ВЫ́ПАЎЗЕНЬ**, -зня, *мн.* -зні, -зняў, *м.* Тое, што і *выпаўзак* (у 2 знач.).

**ВЫ́ПАЎЗЦІ**, -зу, -зеш, -зе; вы́паўз, -зла; -зі; *зак.* **1.** Выйсці паўзком, паўзучы. *В. праз шчыліну.* **2.** Павольна рухаючыся, з'явіцца. *З травы выпаўзла вужака. З-за гары выпаўз аўтобус* (перан.). ‖ *незак.* **выпаўза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выпо́ўзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПАЦКАЦЦА** *гл.* пэцкацца.

**ВЫ́ПАЦКАЦЬ** *гл.* пэцкаць.

**ВЫ́ПЕРАДЗІЦЬ**, -раджу, -радзіш, -радзіць; -раджаны; *зак., каго-што.* Тое, што і *апярэдзіць. В. у бегу. В. у вучобе* (перан.). ‖ *незак.* **выперАджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выпярэ́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выперадже́нне**, -я, *н. і* **выпярэ́джванне**, -я, *н. В. тэрмінаў* (перан.).

**ВЫ́ПЕРЦІ**, -пру, -праш, -пра; вы́пер, -рла; -пры; -перты; *зак.* **1.** *каго-што.* Выцесніць напорам, выдавіць сілай. *В. дно ў бочцы.* **2.** *каго.* Выгнаць, выключыць, звольніць (разм.). *В. з хаты. В. з работы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выдацца, высунуцца за межы чаго-н. (разм.). *В. наперад.* ‖ *незак.* **выпіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ПЕСЦІЦЬ** *гл.* песціць.

**ВЫ́ПЕТРАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** Высахшы, страціць свае якасці, колер і пад. *Пад гарачым сонцам і ветрам выпетрала трава.* **2.** Зрабіцца худым, сухім (перан., разм.). *Во выпетраў чалавек.*

**ВЫ́ПЕЧЫ**, -пеку, -печаш, -печа; -печам, -печаце, -пекуць; вы́пек, -пекла; -печы; -печаны; *зак., што* **1.** Прыгатаваць пячэннем. *Пякарня выпекла тону хлеба.* **2.** Добра прапячы. *Хлеб не выпечаны.* **3.** Расходаваць у працэсе пячэння. *В. ўсё цеста.* **4.** Знішчыць агнём, жарам, кіслатой. *В. бародаўку.* **5.** Выпаліць на чым-н. (знак, кляймо). *В. кляймо* ‖ *незак.* **выпяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **выпяка́нне**, -я, *н. і* **вы́печка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* ‖ *прым.* **выпячны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.). *Выпячныя вырабы.*

**ВЫПІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *што.* Піць (у якой-н. колькасці). *Нашча выпівае паўшклянкі мінеральнай вады.* **2.** Часта ўжываць спіртное (разм.). *Муж пачаў в.*

**ВЫ́ПІЛАВАЦЬ**, -лую, -луеш, -луе; -луй; -лаваны; *зак., што.* Выразаць пілой, вырабіць пілаваннем. *В. дзірку ў дзвярах. В. рамку.* ‖ *незак.* **выпіло́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫПІНА́ЦЬ** *гл.* выпнуць.

**ВЫПІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* выперці. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выдавацца на паверхню, выпінацца. *Востры кадык выпірае на шыі.*

**ВЫ́ПІСАЦЦА**, -пішуся, -пішашся, -пішацца; -пішыся; *зак.* Выбыць са спісаў, са складу чаго-н. *В. з бальніцы. В. з дамавой кнігі.* ‖ *незак.* **выпі́свацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ПІСАЦЬ**, -ішу, -ішаш, -іша; -ішы; -ісаны; *зак.* **1.** *што.* Знайшоўшы, спісаць, запісаць. *В. цытату з кнігі.* **2.** *што.* Напісаць для выдачы каму-н. *В. ордар. В. рахунак.* **3.** *каго-што.* Старанна апісаць сродкамі мовы або намаляваць. *В. вобразы дзеючых асоб. В. узор.* **4.** *што.* Заказаць дастаўку чаго-н. *В. газету.* **5.** *каго (што).* Выклікаць пісьмова. *В. да сябе сям'ю.* **6.** *каго (што).* Выключыць са спісаў, са складу чаго-н. *В. хворага з бальніцы.* **7.** *што.* Зрасходаваць пісаннем (разм.). *В. чарніла з аўтаручкі.* ‖ *незак.* **выпі́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выпі́сванне**, -я, *н. і* **вы́піска**, -і, *ДМ* вы́пісцы, *ж.* (да 1, 2, 4—6 знач.). ‖ *прым.* **выпісны́**, -а́я, -о́е (да 3 і 5 знач.).

**ВЫ́ПІСКА**, -і, *ДМ* вы́пісцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** *гл.* выпісаць. **2.** Тое, што выпісана з якога-н. тэксту, дакумента. *В. з пратакола.*

**ВЫ́ПІЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -півак, *ж.* (разм.). **1.** Выпіванне спіртных напіткаў. *Абед з выпіўкай.* **2.** Бяседа, пачастунак са спіртным. *Наладзіць выпіўку.* **3.** Спіртныя напіткі. *На стале было многа выпіўкі і закускі.*

**ВЫ́ПІХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Тое, што і *выпхаць.* ‖ *незак.* **выпі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫПІХА́ЦЬ** *гл.* выпіхнуць, выпхнуць, выпхаць.

**ВЫПІ́ХВАЦЬ** *гл.* выпіхнуць, выпхнуць, вы́піхаць, выпхаць.

**ВЫ́ПІХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* Тое, што і *выпхнуць.* ‖ *незак.* **выпіха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выпі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПІЦЬ**, -п'ю, -п'еш, -п'е; -піты; *зак.* **1.** *гл.* піць. **2.** *перан., што і чаго.* Вынесці, выцерпець. *В. чашу пакут.*

**ВЫ́ПЛАВІЦЬ**, -плаўлю, -плавіш, -плавіць; -плаўлены; *зак., што.* Плавячы, здабыць. *В. жалеза з руды.* ‖ *незак.* **выплаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **вы́плаўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ВЫ́ПЛАКАЦЦА**, -плачуся, -плачашся, -плачацца; вы́плачыся; *зак.* Аблягчыць сваё гора плачам. ‖ *незак.* **выпла́квацца**, -ваюся, -ваешся, -ваецца.

**ВЫ́ПЛАКАЦЬ**, -лачу, -лачаш, -лача; -лач; -лаканы; *зак., што.* **1.** Выліць, выказаць сваю тугу слязамі. *В. гора.* **2.** Выпрасіць плачам. *В. дапамогу.* ◊ **Выплакаць (усе) вочы** (разм.) — у горы плакаць доўга, многа. ‖ *незак.* **выпла́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПЛАЦІЦЬ**, -плачу, -плаціш, -плаціць; -плачаны; *зак., што.* Выдаць плату, поўнасцю заплаціць. *В. доўг.* ‖ *незак.* **выпла́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **вы́плата**, -ы, *ДМ* -плаце, *ж.; прым.* **выплатны́**, -а́я, -о́е. *Выплатная ведамасць.*

**ВЫ́ПЛЕСЦІ**, -плету, -плецеш, -плеце; -плеў, -плела; -плеці; -плецены; *зак.* Расплёўшы, выняць. *В. стужку з касы.* ‖ *незак.* **выплята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ПЛЕСЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -плецецца; *зак.* Расплёўшыся, выпасці. *Стужка выплелася з касы.* ‖ *незак.* **выплята́цца**, -а́ецца.

**ВЫПЛЁЎВАЦЬ** *гл.* выплюнуць.

**ВЫ́ПЛЫСЦІ**[1], -ыву, -ывеш, -ыве; -ыві; *зак.* **1.** Плывучы, выйсці куды-н. *В. ў адкрытае мора.* **2.** Плывучы, з'явіцца адкуль-н. *В. з-за павароту.* **3.** Падняцца з глыбіні, усплыць. *Выплыла бервяно.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Нечакана выявіцца, стаць відавочным. *Выплыла недастача.* ‖ *незак.* **выплыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ПЛЫСЦІ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыве; *зак.* Выкаласавацца, пусціць колас. *Ячмень выплыў буйным коласам.*

**ВЫ́ПЛЮНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -люнь; -нуты; *зак., што.* Выкінуць з рота пляўком. *В. сліну.* ‖ *незак.* **выплёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПЛЮХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Плюхаючы, выліць. *В. ваду з начовак.* ‖ *незак.* **выплю́хваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **вы́плюхнуць**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты.

**ВЫПЛЯТА́ЦЦА** *гл.* выплесціся.

**ВЫПЛЯТА́ЦЬ** *гл.* выплесці.

**ВЫ́ПНУЦЬ**, -пну, -пнеш, -пне; -пні; -пнуты; *зак., што.* Выставіць, высунуць уперад. *В. грудзі.* ‖ *незак.* **выпіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫПО́ЙВАЦЬ** *гл.* выпаіць.

**ВЫПО́РВАЦЬ** *гл.* выпараць.

**ВЫПО́ЎЗВАЦЬ** *гл.* выпаўзці.

**ВЫПО́ЎЗІНЫ**, -зін. Верхняе покрыва насякомых або скура змяі, скінутая ў час лінькі.

**ВЫПРАБАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца выпрабаваннем чаго-н. *Лётчык-в.* || *ж.* **выпрабава́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. || *прым.* **выпрабава́льніцкі**, -ая, -ае.

**ВЫПРАБАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для выпрабавання, праверкі. *В. палігон. В. тэрмін. Выпрабавальная камісія.*

**ВЫПРАБАВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* выпрабаваць. **2.** Цяжкае перажыванне, няшчасце. *Прайсці праз цяжкія выпрабаванні. Суровыя выпрабаванні вайны.*

**ВЫ́ПРАБАВАНЫ**, -ая, -ае. Правераны практыкай, які апраўдаў сябе. *В. барацьбіт. В. метад.* || *наз.* **вы́прабаванасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́ПРАБАВАЦЬ**, -бую, -буеш, -буе; -буй; -баваны; *зак., каго-што.* Праверыць на практыцы, вопыце. *В. матор. В. сваю сілу.* || *незак.* **выпрабо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **выпрабава́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ПРАВАДЗІЦЬ**, -ваджу, -вадзіш, -вадзіць; -ваджаны; *зак., каго (што).* Прымусіць пайсці, выгнаць. *В. няпрошаных гасцей.* || *незак.* **выправа́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПРАВІЦЦА**[1], -праўлюся, -правішся, -правіцца; *зак.* **1.** Стаць прамым, выпраміцца. **2.** Пазбавіўшыся ад недахопаў, стаць лепшым. *Характар выправіўся.* || *незак.* **выпраўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ВЫ́ПРАВІЦЦА**[2], -праўлюся, -правішся, -правіцца; *зак.* Накіравацца, адправіцца куды-н. *Куды вы выправіліся?* || *незак.* **выпраўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ВЫ́ПРАВІЦЬ**[1], -праўлю, -правіш, -правіць; вы́праві; -праўлены; *зак., што.* **1.** Зрабіць прамым; выпраміць. *В. рэчышча.* **2.** Унесці неабходныя праўкі ў што-н. *В. рукапіс. В. карэктуру.* **3.** Ліквідаваць недахопы, заганы. *В. становішча. В. памылку.* || *незак.* **выпраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **выпраўле́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ПРАВІЦЬ**[2], -праўлю, -правіш, -правіць; вы́праві; -праўлены; *зак.* **1.** *каго-што.* Сабраць і правесці; адправіць. *В. дзяцей у школу. В. экспедыцыю.* **2.** *каго.* Выправадзіць. *В. свавольнікаў з хаты.* **3.** *каго-што.* Паслаць, адправіць куды-н. з якой-н. мэтай. *В. да доктара. В. камбайны ў поле.* || *незак.* **выпраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ВЫ́ПРАГЧЫ**, -прагу, -пражаш, -пража; -пражам, -пражаце, -прагуць; вы́праг, -прагла; -пражы; -пражаны; *зак., каго (што).* Распрэгчы, вызваліць з запрэжкі. *В. каня з воза.* || *незак.* **выпрага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ПРАГЧЫСЯ**, -прагуся, -пражашся, -пражацца; -пражамся, -пражацеся, -прагуцца; вы́прагся, -праглася; -пражыся; *зак.* Вызваліцца з запрэжкі. *Конь выпрагся.* || *незак.* **выпрага́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫПРАМЕ́НЬВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* Ісці, распаўсюджвацца адкуль-н. прамянямі. || *наз.* **выпрамяне́нне**, -я, *н.*

**ВЫПРАМЕ́НЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Вылучаць прамяні, прамянёвую энергію. *В. святло.* || *наз.* **выпрамяне́нне**, -я, *н. Цеплавое в.*

**ВЫ́ПРАМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак., каго-што.* Зрабіць прамым. *В. дрот. В. дарогу.* || *незак.* **выпрамля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *прым.* **выпрамля́льны**, -ая, -ае (спец.).

**ВЫПРАМНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (спец.). Прыстасаванне для ператварэння пераменнага электрычнага току ў пастаянны. *Ртутны в.*

**ВЫ́ПРАСАВАЦЬ** *гл.* прасаваць[1].

**ВЫ́ПРАСІЦЬ**, -прашу, -прасіш, -прасіць; -прашаны; *зак., што і чаго.* Просьбамі дамагчыся чаго-н. *В. прабачэнне. В. грошай.* || *незак.* **выпро́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПРАСТАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Прыняць прамое становішча; выпраміцца. *Вудзільна выпрасталася.* **2.** Легчы, выцягнуўшыся на ўвесь рост (разм.). *В. на канапе.* || *незак.* **выпро́ствацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ПРАСТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Зрабіць простым, прамым; разагнуць. *В. цвік. В. нагу.* **2.** Выраўнаваць пагнутае, памятае. *В. умяціну.* || *незак.* **выпро́стваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПРАЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -вак, *ж.* Пастава, манера трымацца прама, падцягнута. *Вайсковая в. Маладзецкая в.*

**ВЫПРАЎЛЯ́ЦЦА**[1] *гл.* выправіцца[1].

**ВЫПРАЎЛЯ́ЦЦА**[2] *гл.* выправіцца[2].

**ВЫПРАЎЛЯ́ЦЬ**[1] *гл.* выправіць[1].

**ВЫПРАЎЛЯ́ЦЬ**[2] *гл.* выправіць[2].

**ВЫ́ПРАЦАВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цуецца; *зак.* Устанавіцца, утварыцца ў выніку вопыту, працы. *Выпрацавалася вынослівасць.* || *незак.* **выпрацо́ўвацца**, -аецца.

**ВЫ́ПРАЦАВАЦЬ**, -цую, -цуеш, -цуе; -цуй; -цаваны; *зак., што.* **1.** Зрабіць пэўную колькасць работы; вырабіць. *В. норму.* **2.** Стварыць, развіць, адпрацаваць. *В. план сумесных дзеянняў. В. стойкі характар. В. добры стыль.* || *незак.* **выпрацо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **выпрацо́ўванне**, -я, *н. і* **выпрацо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ВЫПРАЦО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -цо́вак, *ж.* **1.** *гл.* выпрацаваць. **2.** Тое, што выпрацавана, выраблена. *Дзённая в.*

**ВЫПРО́СТВАЦЦА** *гл.* выпрастацца.

**ВЫПРО́СТВАЦЬ** *гл.* выпрастаць.

**ВЫПРО́ШВАЦЬ** *гл.* выпрасіць.

**ВЫ́ПУКЛАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* выпуклы. **2.** Выпуклае месца, пукатасць. *В. на сцяне.*

**ВЫ́ПУКЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае сферычную вонкавую паверхню; *проціл.* ўвагнуты. *Выпуклае шкло.* **2.** Які выдаецца наперад, выступае над паверхняй; рэльефны. *В. лоб. Выпуклыя літары.* || *наз.* **вы́пукласць**, -і, *ж.*

**ВЫ́ПУСК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* выпусціць. **2.** Група навучэнцаў, якія заканчваюць навучальную ўстанову адначасова. *Мінулагодні в.* **3.** Частка твора, выдадзеная асобна. *Раман у двух выпусках.*

**ВЫПУСКНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто заканчвае навучальную ўстанову, навучэнец апошняга класа, курса. || *ж.* **выпускні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц.

**ВЫПУСКНЫ́** *гл.* выпусціць.

**ВЫ́ПУСТАШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Зрабіць пустым; апаражніць. *В. торбу сухароў.* **2.** *перан., каго-што.* Пазбавіць маральнай, творчай сілы. *В. душу. Бязмэтнае жыццё выпустошыла гэтага чалавека.* **3.** *перан., што.* Пазбавіць жывога зместу, галоўнага, істотнага (у вучэнні, тэорыі і пад.). *В. ідэю.* || *незак.* **выпусто́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПУСЦІЦЬ**, -пушчу, -пусціш, -пусціць; -пушчаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Даць выйсці. *В. дзіця пагуляць. В. птушку на волю. В. цяпло з хаты. В. снарад* (выстраліць). **2.** *каго-што.* Выпадкова не ўтрымаць, упусціць. *В. талерку з рук.* **3.** *каго (што).* Вывесці з навучальнай установы па заканчэнні курса навучання з наданнем адпаведных правоў. *В. студэнта. В. адзінаццаты клас* (разм.). **4.** *што.* Вырабіўшы, падрыхтаваўшы, пусціць у абарачэнне для якога-н. скарыстання. *В. прадукцыю. В. раман.* **5.** *што.* Высунуць, выставіць. *В. кіпцюры.* **6.** *што.* Павялічыць у даўжыню, шырыню. *В. рукавы.* || *незак.* **выпуска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **выпуска́нне**, -я, *н. і* **вы́пуск**, -у, *м.* (да 3 і 4 знач.). || *прым.* **выпускны́**, -а́я, -о́е (да 1, 3, 5 і 6 знач.). *В. клапан. Выпускная адтуліна доменнай печы. В. клас. Выпускныя экзамены. В. каўнер.*

**ВЫ́ПУЧЫЦЦА** *гл.* пучыцца.

**ВЫ́ПУЧЫЦЬ** *гл.* пучыць.

**ВЫ́ПУШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Абшыўка, аблямоўка з футра па краях адзення, абутку; апуха. *Футровая в.* || *прым.* **вы́пушачны**, -ая, -ае.

**ВЫ́ПХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Выпіхнуць у некалькі прыёмаў. || *незак.* **выпіха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выпі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., каго-што.* Штуршком выкінуць, выдаліць. *В. за дзверы.* || *незак.* **выпіха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выпі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПЫЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Ачысціць ад пылу, трасучы, выбіваючы. *В. палавікі.* || *незак.* **выпы́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПЫРХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* Вылецець, пырхнуўшы. *Птушка выпырхнула з клеткі.* || *незак.* **выпы́рхваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ПЫТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што ў каго.* Выведаць у працэсе гутаркі. *В. сакрэт.* || *незак.* **выпы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫПЯКА́ННЕ** *гл.* выпечы.

**ВЫПЯКА́ЦЬ** *гл.* выпечы.

**ВЫПЯРЭ́ДЖВАЦЦА** *гл.* выперадзіць.

**ВЫПЯРЭ́ДЖВАЦЬ** *гл.* выперадзіць.

**ВЫПЯЧНЫ́** *гл.* выпечы.

**ВЫ́РАБ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* вырабіць. **2.** Якасны бок апрацоўкі чаго-н. *Медная ручка адмысловага вырабу.* **3.** Спосаб, від вытворчасці прадукцыі. *Ручны в. скур. Рэчы хатняга вырабу.* **4.** пераважна *мн.* Выраблены рэчы, прадукт працы. *Металічныя вырабы.* ◊ **Аўчынка вырабу не варта** (прымаўка) — справа, не вартая турбот.

**ВЫ́РАБАТАК**, -тку, *м.* Тое, што і *выпрацоўка* (у 2 знач.).

**ВЫ́РАБАТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Месца, дзе здабываюцца карысныя выкапні.

**ВЫ́РАБІЦЦА**, -блюся, -бішся, -біцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Набыць пэўныя асаблівасці ў працэсе вытворчасці, работы. *Шкура добра вырабілася.* **2.** Запэцкацца (разм.). *В. ў сажу.* **3.** Выбрацца са складанага становішча, выкруціцца (разм.). *Як нам тут в.?* ‖ *незак.* **вырабля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ВЫ́РАБІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., што.* **1.** Зрабіць, выпрацаваць з чаго-н.; выпусціць. *Завод вырабіў многа станкоў.* **2.** Апрацаваць дубленнем. *В. авечую шкуру.* **3.** Выканаць пэўную колькасць работы; выпрацаваць. *В. норму.* **4.** Добра падрыхтаваць для пасеву, пасадкі (глебу). *В. поле.* **5.** Дасканала зрабіць; змайстраваць. *В. ліштвы.* **6.** Запэцкаць, сапсаваць што-н. неахайным абыходжаннем (разм.). *В. паліто ў смалу.* ‖ *незак.* **вырабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **вы́раб**, -у, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**ВЫРАБЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., што.* **1.** *гл.* вырабіць. **2.** Рабіць што-н. незвычайнае; вычвараць (разм.). *Што ты тут вырабляеш?*

**ВЫ́РАДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* Той, хто выдзяляецца ў якім-н. асяроддзі сваімі крайне адмоўнымі, агіднымі якасцямі. *В. у сям'і.*

**ВЫ́РАДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзіцца; *зак.* Пагоршыцца ў пародзе, страціць каштоўныя ўласцівасці продкаў. *Расліна вырадзілася.* ‖ *незак.* **выраджа́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **выраджэ́нне**, -я, *н.*

**ВЫРАЖА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *выразнік.* ‖ *ж.* **выража́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ВЫРАЖА́ЦЬ** *гл.* выразіць.

**ВЫРАЖЭ́ННЕ** *гл.* выразіць.

**ВЫ́РАЗ**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Выразная адтуліна; выемка. *В. для рукавоў.*

**ВЫ́РАЗ**[2], -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Знешні выгляд (твару), які адлюстроўвае ўнутраны стан. *В. вачэй.* **2.** Той або іншы моўны зварот. *Вобразны, метафарычны в.* **3.** Сукупнасць знакаў, формула, якія адлюстроўваюць пэўныя матэматычныя адносіны. *Алгебраічны в.*

**ВЫ́РАЗАЦЬ**, -ражу, -ражаш, -ража; вы́ражы *і* вы́раж; -разаны; *зак.* **1.** *што.* Выняць, выдаліць або зрабіць што-н. рэзаннем. *В. пухліну. В. што-н. з паперы.* **2.** *што.* Зрабіць, начарціць чым-н. рэжучым, вострым. *В. літару на дошцы.* **3.** *што.* Вырабіць разьбой. *В. лыжку.* **4.** *што.* Зрэзаць, адрэзаць для якой-н. патрэбы. *В. лазіну.* **5.** *каго-што.* Вынішчыць разнёй або загрызці ўсіх, многіх (пра ваўкоў). *Ваўкі выразалі статак авечак. Бандыты выразалі ўсю сям'ю.* ‖ *незак.* **выраза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **вырэ́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выраза́нне**, -я, *н.*, **вырэ́званне**, -я, *н.* (да 1—4 знач.) *і* **вы́разка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 1—4 знач.).

**ВЫ́РАЗІЦЬ**, -ражу, -разіш, -разіць; -ражаны; *зак., што.* Вызначыць у якіх-н. адзінках. *В. план у лічбах.* ‖ *незак.* **выража́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **выражэ́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́РАЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* **1.** *гл.* выразаць. **2.** Тое, што выразана, выразаная частка чаго-н. *Газетная в.* **3.** Мяса з сярэдняй часткі тушы; філе. *Свіная в.*

**ВЫРА́ЗЛІВЫ**, -ая, -ае. Які выражае ўнутраныя перажыванні або якасці. *В. позірк.* ‖ *наз.* **выра́злівасць**, -і, *ж.*

**ВЫРА́ЗНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто (або тое, што) выражае якую-н. ідэю, думку, пачуццё. *В. ідэй рабочага класа.* ‖ *ж.* **выра́зніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ВЫРА́ЗНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, у якім кожная дэталь, момант яскрава вылучаюцца. *Выразныя абрысы гор. В. почырк. Выразнае вымаўленне.* **2.** Яскравы, пераканаўчы. *Выразная перавага.* **3.** Дакладна і ясна сфармуляваны. *В. адказ.* ‖ *наз.* **выра́знасць**, -і, *ж.*

**ВЫРАЗНЫ́**, -а́я, -о́е. Выраблены выразаннем, разны. *Вокны з выразнымі ліштвамі.*

**ВЫ́РАЙ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Цёплы край, куды вылятаюць на зіму пералётныя птушкі. *Час адлёту птушак у в.* **2.** Чарада пералётных птушак. *Жураўліны в.*

**ВЫРАКА́ЦЦА** *гл.* вырачыся.

**ВЫ́РАНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што.* Даць магчымасць скаціцца, упасці (пра слязу). *Колькі слёз выраніла.*

**ВЫ́РАСЦІ**, -сту, -сцеш, -сце; -сцем, -сцеце, -стуць; вы́рас, -сла; *зак.* **1.** *гл.* расці. **2.** *з чаго.* Стаць большым ростам настолькі, што адзенне стала малое. *В. з касцюма.* **3.** *перан.* Удасканальваючыся, дасягнуць больш высокай ступені. *Кампазітар вырас за апошнія гады.* **4.** Паказацца нечакана, паўстаць перад вачамі. *На пагрозе вырас сувязны. Як з-пад зямлі вырас* (нечакана паявіўся). *Перад падарожнікамі вырас горад.* ‖ *незак.* **выраста́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́РАСЦІЦЬ**, -рашчу, -расціш, -расціць; -рашчаны; *зак., каго-што.* Даць вырасці, даглядаючы, выхоўваючы. *В. сад. В. дзяцей.* ‖ *незак.* **выро́шчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫРАТАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто ратуе каго-, што-н.; збавіцель. ‖ *ж.* **выратава́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ВЫРАТАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для выратавання, садзейнічае яму. *В. круг. Выратавальныя прыёмы.* ‖ *наз.* **выратава́льнасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́РАТАВАЦЦА**, -туюся, -туешся, -туецца; -туйся; *зак.* Уберагчыся, збавіцца ад чаго-н. небяспечнага, пагражальнага. *В. ад смерці.* ‖ *незак.* **вырато́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́РАТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; -таваны; *зак., каго-што.* **1.** Пазбавіць ад чаго-н. (страшнага, небяспечнага і пад.). *В. тапельца.* **2.** Захаваць у цэласці, зберагчы. *В. рукапіс ад знішчэння.* ‖ *незак.* **вырато́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выратава́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́РАЎНАВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нуецца; *зак.* Стаць роўным. *Шарэнга выраўнавалася. Характар выраўнаваўся.* ‖ *незак.* **выраўно́ўвацца**, -аецца.

**ВЫ́РАЎНАВАЦЬ**, -ную, -нуеш, -нуе; -нуй; -наваны; *зак., што.* Зрабіць роўным. *В. пляцоўку.* ‖ *незак.* **выраўно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́РАЎНЯЦЦА**, -яюся, -яешся, -яецца; *зак.* **1.** Тое, што і *выраўнавацца.* **2.** Разагнуцца, выпрастацца. *Жанчына, убачыўшы нас, выраўнялася, прывіталася.* **3.** Размясціцца па прамой лініі, параўняцца. *Калона выраўнялася. В. ў рабоце з кім-н.* (перан.). **4.** Стаць лепшым (у фізічных або духоўных адносінах). *Хлапец выраўняўся і пастрайнеў.* ‖ *незак.* **выро́ўнівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́РАЎНЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; -яны; *зак., што.* **1.** Тое, што і *выраўнаваць.* **2.** Разагнуць, выпрастаць. *В. плечы.* **3.** Зрабіць прамым. *В. шарэнгу. В. рэчышча.* ‖ *незак.* **выро́ўніваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́РАЧЫСЯ**, -ракуся, -рачашся, -рачацца; -рачамся, -рачацеся, -ракуцца; вы́ракся, -клася; *зак., каго-чаго.* Адмовіцца, не прызнаць сваім. *В. родных. В. свайго сына.* ‖ *незак.* **вырака́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **вырачэ́нне**, -я, *н.*

**ВЫРАША́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які можна вырашыць (у 2 і 3 знач.). *Вырашальная праблема.* **2.** Рашаючы, галоўны, найбольш важны. *В. перыяд у жыцці народа.* ‖ *наз.* **выраша́льнасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́РАШЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шыцца; *зак.* Атрымаць вырашэнне, стаць вырашаным. *Справа вырашылася добра.* ‖ *незак.* **вырашаа́цца**, -а́ецца.

**ВЫ́РАШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак.* **1.** *з інф.* або *з дадан.* Абдумаўшы, прыйсці да якога-н. вываду, заключэння. *Ён вырашыў застацца тут.* **2.** *што.* Рашыць, знайсці адказ на што-н. *В. пытанне, праблему.* **3.** *што* і *з інф.* Прыняць рашэнне. *Вырашылі стварыць камісію.* **4.** *што.* Рассудзіць. *В. спрэчку.* ◊ **Вырашыць чый-н. лёс** — прадвызначыць чыю-н. будучыню, зыход чаго-н. ‖ *незак.* **выраша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **вырашэ́нне**, -я, *н.* (да 2 і 4 знач.).

**ВЫ́РВАЦЦА**, -рвуся, -рвешся, -рвецца; -рвіся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Адарвацца, аддзяліцца. *Вырваўся гузік у паліто.*

2. Сілай вызваліцца, выйсці адкуль-н. *В. з палону. Нарэшце мы вырваліся ў тэатр* (перан.: знайшлі час). **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выйсці на паверхню адкуль-н. (пра што-н., што паказваецца, прарываецца адразу). *Полымя вырвалася з коміна. Вырвалася прызнанне.* **4.** Аддзяліўшыся ад іншых, пераадольваючы перашкоды, выйсці куды-н. *Гончык вырваўся наперад.* ‖ *незак.* **вырывáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ВЫ́РВАЦЬ**, -рву, -рвеш, -рве; -рві; -рваны; *зак., каго-што.* Рэзкім рухам, рыўком выдаліць, дастаць, узяць. *В. пустазелле. В. хворы зуб. В. ліст са сшытка. В. карандаш з рук. В. прызнанне ў каго-н.* (перан.: прымусіць прызнацца). *В. перамогу* (перан.). ‖ *незак.* **вырывáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ВЫРО́ЎНІВАЦЦА** *гл.* выраўняцца.

**ВЫРО́ЎНІВАЦЬ** *гл.* выраўняць.

**ВЫРО́ШЧВАЦЬ** *гл.* вырасціць.

**ВЫ́РУБІЦЬ**, -зблю, -біш, -біць; -блены; *зак., што.* **1.** Зрубіць, пабудаваць што-н. *Чаго і з сцяны не вырубіш?* (загадка). **2.** Здабыць руду, вугаль. *Вырубіў 102 тоны вугалю.* ‖ *незак.* **вырубáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **вы́рубка**, -і, *ДМ* -бцы, *ж.* (да 2 знач.).

**ВЫ́РУЛІЦЬ** *гл.* руліць.

**ВЫ́РУЛЯВАЦЬ** *гл.* руляваць.

**ВЫ́РУЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** *гл.* выручыць. **2.** Утаргаваныя грошы. *Здаць выручку ў банк.*

**ВЫ́РУЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Памагчы каму-н. у цяжкіх абставінах. *В. з бяды. В. сябра.* **2.** *што.* Утаргаваць. *В. грошы за тавар.* ‖ *незак.* **выручáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **вы́ручка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* (да 1 знач.).

**ВЫРЫВÁЦЦА** *гл.* вырвацца.

**ВЫРЫВÁЦЬ** *гл.* вырваць.

**ВЫ́РЫСАВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -суецца; *зак.* Пра бачнае: абазначыцца, стаць выяўным, выразным. *Удалечыні вырысаваліся горы.* ‖ *незак.* **вырысóўвацца**, -аецца.

**ВЫ́РЫСАВАЦЬ**, -сую, -суеш, -суе; -суй; -саваны; *зак., што.* Старанна і акуратна нарысаваць пяром, алоўкам. ‖ *незак.* **вырысóўваць**, -ае, -аеш, -ае.

**ВЫ́РЫЦЬ** *гл.* рыць.

**ВЫРЭ́ЗВАЦЬ** *гл.* выразаць.

**ВЫ́САДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* Выйсці з экіпажа, вагона, судна і пад., прыбыўшы куды-н. *В. з карабля на бераг.* ‖ *незак.* **высáджвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **вы́садка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.*

**ВЫ́САДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Даць магчымасць або прымусіць выйсці з вагона, судна і пад. *В. пасажыраў. В. дэсант.* **2.** *што.* Перасадзіць у глебу (пра расаду, саджанцы). *В. памідоры з парнікоў. В. кветкі ў грунт.* **3.** *што чым.* Пасадзіць вакол чаго-н. *В. пляцоўку кустамі.* **4.** *што.* Выбіць, выламаць моцным ударам (разм.). *В. дзверы.* ‖ *незак.* **высáджваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **высáджванне**, -я, *н.* і **вы́садка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 1—3 знач.).

**ВЫСАКА...** (*гл.* **высока...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «высока...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *высакаякасны, высакаствольны, высакародны, высакарослы.*

**ВЫСАКАГО́РНЫ**, -ая, -ае. Размешчаны ў гарах, у высокай горнай мясцовасці. *В. раён.*

**ВЫСАКАМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Пагардліва-фанабэрысты. *В. выгляд.* ‖ *наз.* **высакаме́рнасць**, -і, *ж.* і **высакаме́р'е**, -я, *н.*

**ВЫСАКАРО́ДДЗЕ**, -я, *н.* У царскай Расіі: у спалучэнні з займеннікамі «ваша», «яго», «яе», «іх» — тытулаванне цывільных чыноўнікаў пятага класа (стацкіх саветнікаў).

**ВЫСАКАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** З высокімі маральнымі якасцямі, крыштальна чысты, велікадушны. *В. чалавек.* **2.** Узвышаны, асвячоны высокай мэтай. *В. ўчынак. Высакародныя мэты.* **3.** Выключны па сваіх якасцях, прыгажосці. *Высакародная прастата ліній. Высакародныя манеры.* **4.** Ужыв. ў складзе розных тэрмінаў для абазначэння парод, разрадаў, якія чым-н. выдзяляюцца. *В. алень. Высакародныя металы* (золата, серабро, плаціна). ‖ *наз.* **высакаро́днасць**, -і, *ж.* (да 1—3 знач.) *і* **высакаро́дства**, -а, *н.* (да 1—3 знач.).

**ВЫСАКО́СНЫ**. У выразе: **высакосны год** — кожны чацвёрты год, які мае ў лютым 29, а не 28 дзён.

**ВЫ́САЛАПІЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -плены; *зак., што* (разм.). Высунуць з рота (язык). ‖ *незак.* **высалóплíваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́САХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, з якога выпарылася вільгаць. *Высахлая рэчка.* **2.** Які ссох, перастаў жыць. *Высахлае дрэва.* **3.** *перан.* Схуднелы. *В. твар.*

**ВЫ́САХНУЦЬ** *гл.* сохнуць.

**ВЫ́САЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што.* Сочачы, адшукаць, раскрыць. *В. шпіёна.* ‖ *незак.* **высóчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫСАЧЭ́ЗНЫ**, -ая, -ае (разм.). Вельмі высокі (у 1 знач.). *В. пад'ёмны кран.*

**ВЫ́СВАТАЦЬ** *гл.* сватаць.

**ВЫ́СВЕТЛІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ліцца; *зак.* Стаць ясным, зразумелым. *Справа высветлілася.* ‖ *незак.* **высвятля́цца**, -я́ецца.

**ВЫ́СВЕТЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Зрабіць ясным, зразумелым; выясніць. *В. становішча.* ‖ *незак.* **высвятля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ВЫ́СВЕЦІЦЬ**, -ечу, -еціш, -еціць; -ечаны; *зак., каго-што.* Ярка вылучыць святлом што-н. *В. фарамі дарогу.*

**ВЫ́СВІДРАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе -руй; -раваны; *зак., што.* Свідруючы, зрабіць дзірку, паглыбленне. *В. дзірку.* ‖ *незак.* **высвідрóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫСВІ́СТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Свішчучы, выконваць. *В. мелодыю.*

**ВЫ́СЕДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *без дап.* Прасядзець, прабыць дзе-н. пэўны час. *В. пры хворым цэлыя суткі.* **2.** *каго.* Вывесці птушанят, седзячы на яйках. *В. куранят.* **3.** *перан., што.* Дасягнуць чаго-н. доўгім сядзеннем (разм., жарт.). *В. дысертацыю.* ‖ *незак.* **высе́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СЕЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* Пакінуць месца свайго жыхарства. *В. са старога дома.* ‖ *незак.* **высяля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ВЫ́СЕЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго (што).* Прымусіць пакінуць месца свайго жыхарства. *В. у суседнюю вёску.* ‖ *незак.* **высяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ВЫ́СЕЛКІ**, -лкаў. Невялікае паселішча на новым месцы, якое вылучылася з іншага населенага пункта. *Жыць на выселках.* ‖ *прым.* **вы́селкавы**, -ая, -ае.

**ВЫ́СЕРАБРЫЦЬ** *гл.* серабрыць.

**ВЫ́СЕРБАЦЬ** *гл.* сёрбаць.

**ВЫ́СЕЎ** *гл.* высеяць.

**ВЫ́СЕЎКІ**, -севак. Астаткі ад прасеянага. *Аўсяныя в.* ‖ *прым.* **вы́севачны**, -ая, -ае.

**ВЫ́СЕЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* **1.** *гл.* высечы. **2.** *мн.* -і, -чак. Месца, дзе высеклі лес. *Раскарчаваць высечку.*

**ВЫ́СЕЧЫ**, -секу, -сечаш, -сеча; -сечам, -сечаце, -секуць; вы́сек, -кла; -сечы; -сечаны; *зак., што.* **1.** Ссячы ўсё, знішчыць. *В. лес.* **2.** Выбраўшы, ссячы. *В. жардзіну.* **3.** Секучы, дастаць, выняць або вырабіць. *В. кавалак лёду.* **4.** Выразаць з каменя ці на камені. *В. надпіс. В. бюст.* **5.** Здабыць ударам па крэмені, выкрасаць. *В. іскру.* ‖ *незак.* **высякáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **вы́сечка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* (да 1—4 знач.).

**ВЫ́СЕЯЦЬ**, -сею, -сееш, -сее; -сей; -сеяны; *зак.* Пасеяць (якую-н. колькасць). *В. сто пудоў жыта.* ‖ *незак.* **высявáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **высявáнне**, -я, *н.* і **вы́сеў**, -севу, *м.* (спец.). *Нормы высеву. Высеў траў.* ‖ *прым.* **высяўны́**, -áя, -óе.

**ВЫ́СІЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* **1.** Дайсці да страты сіл; знясіліцца. *В. на цяжкай рабоце.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць неўрадлівым, спустошыцца (пра глебу; разм.). *Зямля высілілася.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Страціць моц (пра віно, хрэн і пад.; разм.). ‖ *незак.* **высі́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **высі́льванне**, -я, *н.* і **высíле́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́СІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -сіцца; *незак.* Узвышацца, стаяць высока. *Удалечыні высіцца вежа.*

**ВЫ́СКАЛ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сціснутыя зубы, якія відаць з-за расцягнутых губ. *Драпежны в.*

**ВЫ́СКАЛІЦЦА** *гл.* скаліцца.

**ВЫ́СКАЛІЦЬ** *гл.* скаліць.

**ВЫСКАЛЯ́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ляцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -ля́к (разм.). Той, хто любіць скаліць зубы, жартаваць. *Выскалякі не давалі праходу.*

**ВЫ́СКАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *м.* і *ж.* (разм.). Чалавек, які, жадаючы

выслужыцца, паказаць сябе, ва ўсё ўмешваецца, які заняў прыметнае грамадскае становішча не па заслугах.

**ВЫ́СКАЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак.* **1.** Скочыўшы, пакінуць якое-н. месца. *В. з лодкі. Выскачыла з галавы* (перан.: забылася; разм.). *В. замуж* (перан.: паспешна або нечакана выйсці замуж; разм.). **2.** Скачучы або таропка выбегшы, выехаўшы, з'явіцца адкуль-н. *Заяц выскачыў з кустоў. В. насустрач.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Нечакана выпасці, выскачыць. *Нітка выскачыла з іголкі.* **4.** Недарэчна, не да месца сказаць, зрабіць што-н. (разм.). *В. са сваёй прапановай. Выскачыў як Піліп з канапель* (прымаўка). ‖ *незак.* **выска́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СКВАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* Скваранием вылучыць, здабыць. *В. тлушч з сала.* ‖ *незак.* **выскава́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СКРАБЦІ**, -бу, -беш, -бе; -бі; -бены; *зак., што.* Скрабучы, ачысціць або выдаліць. *В. патэльню. В. рэшткі кашы з каструлі.* ‖ *незак.* **выскраба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выскрэ́бваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СКУБЦІ**, -бу, -беш, -бе; вы́скуб, -бла; -бі; -бены; *зак., што.* Скубучы, выцягнуць адкуль-н. або зрабіць паглыбленне, выемку ў чым-н. *В. жменю воўны. В. ў стозе нару.* ‖ *незак.* **выскуба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **выску́бваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **вы́скубнуць**, -ну, -неш, -не; -ні.

**ВЫ́СЛАБАНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што* (разм.). Выняць, вызваліць з чаго-н. цеснага. *В. нагу са стрэмені.* ‖ *незак.* **выслабаня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ВЫ́СЛАЦЬ**[1], вы́шлю, вы́шлеш, вы́шле; вы́шлі; вы́сланы; *зак., каго-што.* **1.** Паслаць адкуль-н. *В. ліст. В. каго-н. насустрач госцю.* **2.** У пакаранне выдаліць за межы чаго-н. *В. са сталіцы.* ‖ *незак.* **высыла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **высыла́нне**, -я, *н. і* **вы́сылка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **вы́сылачны**, -ая, -ае *і* **высыльны́**, -а́я, -о́е (да 2 знач.; разм.).

**ВЫ́СЛАЦЬ**[2], -сцелю, -сцелеш, -сцеле; вы́сцелі; -сланы; *зак., што.* Пакрыць усюды, услаць. *В. скрынку паперай.* ‖ *незак.* **высціла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́СЛІЗГАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Стаць слізкім, коўзкім, выгладжаным да бляску. *Пас выслізгаўся.* ‖ *незак.* **выслі́згвацца**, -аецца.

**ВЫ́СЛІЗГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зрабіць слізкім, коўзкім. *В. сцежку.* ‖ *незак.* **выслі́згваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СЛІЗНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* Слізгануўшыся, выпасці, вырвацца. *Шост выслізнуўся з рук.* ‖ *незак.* **выслі́згвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́СЛІЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** Слізгануўшы, выпасці, вырвацца. *Рыба выслізнула з рук.* **2.** *перан.* Непрыметна выйсці (разм.). *В. з хаты.* ‖ *незак.* **выслі́згваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫСЛО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Каратка выказаная глыбокая па змесце думка. *Выслоўі вялікіх людзей.*

**ВЫ́СЛУГА**, -і, *ДМ* -слузе, *ж.* Пэўны тэрмін знаходжання на службе. *За выслугу гадоў.*

**ВЫСЛУГО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Дагаджаць, прыслужваць. *Не хачу ёй в.*

**ВЫ́СЛУЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *зак.* Прыслужваючы, дабіцца чыёй-н. прыхільнасці. *В. перад начальствам.* ‖ *незак.* **вы́слу́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́СЛУЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак.* **1.** *што.* Атрымаць за службу. *В. узнагароду.* **2.** Праслужыць, прабыць на службе. *В. у арміі дваццаць пяць гадоў.* ‖ *незак.* **выслу́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СЛУХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Праслухаць да канца. *В. скаргу. В. сімфонію.* **2.** Даследаваць на слых. *В. работу сэрца.* ‖ *незак.* **выслу́хваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **выслухо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫСЛУ́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* выслухаць. **2.** *што.* Збіраць чуткі, падслухваць. *Ходзіць і выслухвае, што гавораць.*

**ВЫСЛУХО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *выслухваць.*

**ВЫ́СМАГЛЫ**, -ая, -ае. Які страціў вільгаць, высах ад гарачыні. *Высмаглыя губы.*

**ВЫ́СМАГНУЦЬ** *гл.* смагнуць.

**ВЫ́СМАЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -жыцца; *зак.* Добра ўсмажыцца. *Мяса высмажылася.* ‖ *незак.* **высма́жвацца**, -аецца.

**ВЫ́СМАЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* Добра ўсмажыць. *В. сала.* ‖ *незак.* **высма́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СМАКТАЦЬ**, -кчу, -кчаш, -кча; -кчы; -ктаны; *зак., што з каго-чаго.* Смокчучы, выцягнуць. *В. кроў з ранкі. В. усе сокі з каго-н.* (перан.). ‖ *незак.* **высмо́ктваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СМАЛІЦЬ**[1] *гл.* смаліць[1].

**ВЫ́СМАЛІЦЬ**[2], -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што* (разм.). Знішчыць агнём, сонцам і пад.; выпаліць. *Пажар высмаліў лес. Спёка высмаліла траву на паплавах.* ‖ *незак.* **высма́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СМАРКАЦЦА** *гл.* смаркацца.

**ВЫ́СМАРКАЦЬ** *гл.* смаркаць.

**ВЫ́СМЕЯЦЬ**, -ею, -ееш, -еє; -ей; -еяны; *зак., каго-што.* Насмешкай паказаць адмоўныя адносіны да каго-, чаго-н. *В. мяшчанства.* ‖ *незак.* **высме́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СМЯГЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *высмаглы.*

**ВЫ́СМЯГНУЦЬ** *гл.* смягнуць.

**ВЫСОКА...** (а таксама **высака...**). Першая састаўная частка складаных слоў; пішацца з «о», калі націск у другой частцы падае не на першы склад: 1) адпавядае па знач. словам «вельмі», «у вышэйшай ступені», напр.: *высокаадукаваны, высокаарганізаваны, высокачуллівы, высокаэфектыўны;* 2) адпавядае слову «высокі» (у 1 знач.), напр. *высокабартовы;* 3) у складзе дарэвалюцыйных і царкоўных тытулаванняў асоб, высокіх чыноў, а таксама ў зваротах паважанасці азначае высокую ступень пачцівасці, напр.: *высокаблагароддзе, высокаправасхадзіцельства, высокапрападобнасць, высокашаноўны.*

**ВЫСОКАПАСТА́ЎЛЕНЫ**, -ая, -ае. Які займае высокае грамадскае або службовае становішча. *Высокапастаўленая асоба.*

**ВЫСОКАПРАДУКЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які вызначаецца вялікай, высокай прадукцыйнасцю. *Высокапрадукцыйная праца.*

**ВЫСО́КАСЦЬ**, -і, *ж.* У дарэвалюцыйнай Расіі: тытулаванне членаў царскага дому (у спалучэнні з займеннікамі «ваша», «іх», «яго», «яе»). *Яго в.*

**ВЫСОКАТАВА́РНЫ**, -ая, -ае. Які выпускае, дае вялікую колькасць таварнай прадукцыі. *Высокатаварная гаспадарка.*

**ВЫСО́КІ**, -ая, -ае; вышэ́йшы; найвышэ́йшы. **1.** Вялікі па працягласці знізу ўверх або далёка размешчаны ў напрамку знізу ўверх; *проціл.* нізкі. *В. рост. В. дом. Высокія горы. Жыць высока* (прысл.). *В. лоб* (вялікі). **2.** Значна большы за сярэднюю норму, за сярэдні ўзровень. *В. ціск крыві. В. ўраджай. Высокія тэмпы развіцця. В. працэнт. Высокая вада* (на высокім узроўні). **3.** Выдатны па сваім значэнні, вельмі важны, пачэсны (кніжн.). *Высокая адказнасць. В. гонар. Высокая ўзнагарода. В. госць.* **4.** Поўны глыбокага значэння, незвычайны па сваім змесце (кніжн.). *Высокая ідэйнасць. В. стыль.* **5.** Вельмі добры. *Высокае майстэрства. Кніга высокай вартасці. Быць высокай думкі пра каго-н.* **6.** Тонкі, гучны, які ўтвараецца ваганнямі вялікай частаты (пра гукі). *В. голас. Высокая нота.* ‖ *наз.* **вышыня́**, -і́, *мн.* вышы́ні, вышы́нь, *ж.* (да 1, 2 і 6 знач.).

**ВЫСО́ЎВАЦЦА** *гл.* высунуцца.

**ВЫСО́ЎВАЦЬ** *гл.* высунуць.

**ВЫСО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Прыстасаваны для высоўвання. *Высоўная скрынка.*

**ВЫСО́ЧВАЦЬ** *гл.* высачыць.

**ВЫ́СПА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Невялікі востраў, часцей пясчаны. ‖ *прым.* **вы́спенны**, -ая, -ае.

**ВЫ́СПАВЕДАЦЦА** *гл.* спавядацца.

**ВЫ́СПАВЕДАЦЬ** *гл.* спавядаць.

**ВЫ́СПАЦЦА**, -плюся, -пішся, -піцца; *зак.* Праспаўшы доўга, добра адпачыць. ‖ *незак.* **высыпа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫ́СПЕЛІЦЬ** *гл.* спяліць.

**ВЫ́СПЕЛЫ**, -ая, -ае. Які добра выспеў. *В. гарбуз.* ‖ *наз.* **вы́спеласць**, -і, *ж.*

**ВЫ́СПЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -пее; *зак.* Паспець, стаць спелым. *Садавіна выспела. Выспеў план* (перан.). ‖ *незак.* **выспява́ць**, -а́е.

**ВЫ́ССАЦЬ**, -ссу, -ссеш, -ссе; -ссі; -ссаны; *зак., што з каго-чаго.* Ссаннем вы-

цягнуць. *В. кроў з раны.* ‖ *незак.* **высыса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫСТА́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -та́ў, *ж.* Тое, што і *выстаўка.*

**ВЫ́СТАВІЦЦА**, -таўлюся, -тавішся, -тавіцца; *зак.* Выдацца ўперад; высунуцца. *В. з акна.* ‖ *незак.* **выстаўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ВЫ́СТАВІЦЬ**, -таўлю, -тавіш, -тавіць; -таўлены; *зак.* **1.** *што.* Паставіць, вынесці за межы чаго-н. *В. вазоны з пакоя на балкон.* **2.** *што.* Выняць устаўленае. *В. падвойныя рамы з акон.* **3.** *каго (што).* Выгнаць (разм.). *В. за дзверы свавольніка.* **4.** *каго-што.* Змясціць для агляду. *В. карціны на прагляд. В. напаказ.* **5.** *каго-што.* Паставіць, размясціць (варту і пад.). *В. вартавых.* **6.** *каго-што.* Прапанаваць, вылучыць. *В. кандыдата.* **7.** *перан., што.* Выказаць прапанову, патрабаванне. *В. ультыматум.* **8.** *перан., каго-што.* Паказаць у тым або іншым выглядзе. *В. на пасмешышча.* **9.** *каго-што.* Знайшоўшы, сабраўшы, даць для пэўнай мэты. *В. вялікую армію. В. пачастунак.* **10.** *што.* Напісаць, паставіць, вывесці (афіц.). *В. вучням гадавыя адзнакі.* ‖ *незак.* **выстаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **выстаўле́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́СТАРАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., што* (разм.). Тое, што і *расстарацца.*

**ВЫ́СТАЎКА**, -і, *ДМ* -таўцы, *мн.* -і, -тавак, *ж.* Сукупнасць прадметаў, размешчаных дзе-н. для агляду, а таксама месца, дзе яны сабраны. *Сельскагаспадарчая в. В. карцін. В.-продаж* (з прадажай экспанатаў). ‖ *прым.* **вы́ставачны**, -ая, -ае. *Выставачная зала.*

**ВЫСТАЎЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* **1.** *гл.* выставіцца. **2.** *перан.* Весці сябе манерна, стараючыся паказаць сябе з выгаднага боку; рысавацца (разм.). *В. на людзях.*

**ВЫ́СТАЯЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -стаіцца; *зак.* Набыць пэўныя якасці ў выніку працяглага стаяння. *Наліўка выстаялася.*

**ВЫ́СТАЯЦЬ**, -таю, -таіш, -таіць; -тай; *зак.* **1.** *што.* Прастаяць доўга або з цяжкасцю. *В. чаргу за білетам. В. на нагах цэлую змену.* **2.** *перан.* Не паддацца, вытрымаць, устаяць. *В. супраць ворага. В. у барацьбе.* ‖ *незак.* **высто́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СТРАІЦЦА**[1], -раюся, -раішся, -раіцца; *зак.* Стаць строем ці размясціцца ў пэўным напрамку. *В. калонай. Каля касы выстраілася чарга.* ‖ *незак.* **выстро́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́СТРАІЦЦА**[2], -раюся, -раішся, -раіцца; *зак.* (разм.). Адзецца па-святочнаму; прыбрацца. *В. як на баль.* ‖ *незак.* **выстро́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́СТРАІЦЬ**[1], -раю, -раіш, -раіць; -раены; *зак., каго-што.* Паставіць строем або размясціць у пэўным парадку. *В. полк.* ‖ *незак.* **выстро́йваць**, -аю, -аеш,-ае.

**ВЫ́СТРАІЦЬ**[2], -раю, -раіш, -раіць; -раены; *зак., каго* (разм.). Адзець па-святочнаму; убраць. ‖ *незак.* **выстро́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СТРАЛ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *стрэл.*

**ВЫ́СТРАЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* Тое, што і *стрэліць.* ‖ *незак.* **выстрэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СТРАЛЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; -яны; *зак., што.* Страляючы, расходаваць. *В. усе патроны.* ‖ *незак.* **выстрэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СТРАЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Прашыць на швейнай машыне. *В. каўнер.* ‖ *незак.* **выстро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СТРУГАЦЬ** *гл.* стругаць.

**ВЫ́СТРЫГЧЫ**, -рыгу, -рыжаш, -рыжа; -рыг, -гла; -рыжы; -рыжаны; *зак., што.* Стрыжкай выдаліць. *В. пасму валасоў.* ‖ *незак.* **выстрыга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫСТРЭ́ЛЬВАЦЬ** *гл.* выстраліць, выстраляць.

**ВЫ́СТУДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Выпусціўшы цяпло, моцна ахаладзіць. *В. хату.* ‖ *незак.* **выстýджваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СТУКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Умоўнымі стукамі перадаць, узнавіць (разм.). *В. тэлеграму.* **2.** *каго-што.* Лёгкім пастукваннем пальцамі ці малаточкам па целе абследаваць стан унутраных органаў. *В. лёгкія. Доктар выстукаў хворага.* ‖ *незак.* **высту́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СТУП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Частка якога-н. прадмета, якая выступае, выдаецца ўперад. *В. скалы.*

**ВЫ́СТУПІЦЬ**, -плю, -піш, -піць; *зак.* **1.** Выйсці наперад адкуль-н. з-за чаго-н. ці стаць бачным, праявіцца. *З натоўпу выступіла жанчына.* **2.** Адправіцца ў іншае месца, выйшаўшы з месца стаянкі. *В. у паход.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прасачыўшыся знутры, паказацца на паверхні. *На целе выступілі кроплі поту.* **4.** Зрабіць, выканаць што-н. публічна. *В. з канцэртам, з дакладам. В. у друку супраць каго-н., у абарону каго-н. В. на сходзе. В. супраць несправядлівасці.* ‖ *незак.* **выступа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **выступле́нне**, -я, *н.* (да 2 і 4 знач.).

**ВЫСТУПЛЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* выступіць. **2.** Прамова, выказванне на сходзе, а таксама ігра артыста перад публікай. *Справаздачнае в. Публічнае в.*

**ВЫСТУПО́ВЕЦ**, -по́ўца, *мн.* -по́ўцы, -по́ўцаў, *м.* Той, хто дзе-н. выступае, робіць выступленне.

**ВЫ́СУДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што* (разм.). Атрымаць па суду. *В. спадчыну.* ‖ *незак.* **высу́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СУНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Паказацца адкуль-н.; выставіцца. *В. з акна.* **2.** Прасунуцца наперад. *Рота высунулася на паўкіламетра.* ‖ *незак.* **высо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́СУНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -сунь; -нуты; *зак., што.* **1.** Выставіць вонкі, паказаць. *В. галаву ў акно.* **2.** Сунучы, перамясціць, выставіць наперад. *В. шуфляду са стала. В. стол на сярэдзіну пакоя.* **3.** *перан.* Прапанаваць для абмеркавання. *В. план-праект.* ‖ *незак.* **высо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СУШЫЦЦА** *гл.* сушыцца.

**ВЫ́СУШЫЦЬ**, -сушу, -сушыш, -сушыць; -сушаны; *зак.* **1.** *гл.* сушыць. **2.** *што.* Асушыць. *В. балота. В. слёзы* (перастаць плакаць). ‖ *незак.* **высу́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́СЦЕБАЦЬ** *гл.* сцябаць.

**ВЫСЦІЛА́ЦЬ** *гл.* выслаць[2].

**ВЫСЫЛА́ННЕ** *гл.* выслаць[1].

**ВЫСЫЛА́ЦЬ** *гл.* выслаць[1].

**ВЫ́СЫЛАЧНЫ** *гл.* выслаць[1].

**ВЫ́СЫЛКА** *гл.* выслаць[1].

**ВЫСЫЛЬНЫ́** *гл.* выслаць[1].

**ВЫ́СЫПАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -плецца; *зак.* **1.** Сыплючыся, вываліцца. *Бульба высыпалася з мяшка.* **2.** З'явіцца на паверхні ў вялікай колькасці (пра атмасферныя ападкі, сып). *Раніцай высыпаўся іней. Адзёр высыпаўся.* ‖ *незак.* **высыпа́цца**, -а́ецца.

**ВЫСЫПА́ЦЦА**[1] *гл.* вы́сыпацца.

**ВЫСЫПА́ЦЦА**[2] *гл.* выспацца.

**ВЫ́СЫПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; вы́сып; -паны; *зак.* **1.** *што.* Сыплючы, выдаліць. *В. збожжа з мяшка.* **2.** *што.* Услаць чым-н. сыпкім. *В. сцежку пяском.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выйсці, выбегчы ў мностве (разм.). *На вуліцу высыпаў народ.* ‖ *незак.* **высыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫСЫСА́ЦЬ** *гл.* выссаць.

**ВЫСЫХА́ЦЬ** *гл.* высахнуць.

**ВЫСЬ**, -і, *ж.* Прастора, якая знаходзіцца высока над зямлёй. *У завоблачную в. Горныя высі.*

**ВЫСЯВА́ННЕ** *гл.* высеяць.

**ВЫСЯВА́ЦЬ** *гл.* высеяць.

**ВЫСЯДА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *незак.* Прабівацца на паверхню (пра валасы). *Вусы высядаюць.*

**ВЫСЯКА́ЦЬ** *гл.* высечы.

**ВЫСЯЛЯ́ЦЦА** *гл.* выселіцца.

**ВЫСЯЛЯ́ЦЬ** *гл.* выселіць.

**ВЫСЯЎНЫ́** *гл.* высеяць.

**ВЫ́ТАНЦАВАЦЦА**, -цуюся, -цуешся, -цуецца; -цуйся; *зак.* **1.** Натанцавацца ўдосталь. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Удацца, атрымацца (разм.). *Справа не вытанцавалася.* ‖ *незак.* **вытанцо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ТАНЧАНЫ**, -ая, -ае. Тонкі, надзвычай далікатны. *В. густ. Вытанчаная ветлівасць.* ‖ *наз.* **вы́танчанасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́ТАНЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Зрабіць тонкім; станчыць. ‖ *незак.* **вытанча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫ́ТАПІЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -плены; *зак., што.* Тапленнем здабыць, вырабіць. *В. сала.* ‖ *незак.* **вытó́пліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выто́пліванне**, -я, *н.* і

**вы́тапка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* ‖ *прым.* **вытапны́**, -áя, -óе.

**ВЫ́ТАПТАЦЬ**, -пчу, -пчаш, -пча; -пчы; -птаны; *зак., што.* Топчучы, сапсаваць, знішчыць. *В. пасевы.* ‖ *незак.* **вытó́птваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ТАРАШЧЫЦЦА**, -шчуся, -шчышся, -шчыцца; *зак.* (разм.). **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра вочы: шырока раскрыцца ад здзіўлення. **2.** *на каго-што.* Уставіцца, шырока раскрыўшы вочы. *Чаго ты вытарашчыўся?* ‖ *незак.* **вытарэ́шчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ТАРАШЧЫЦЬ** *гл.* тарашчыць.

**ВЫ́ТАРГАВАЦЬ**, -гую, -гуеш, -гуе; -гуй; -гаваны; *зак., што.* **1.** Атрымаць у выніку продажу. *В. за яблыкі добрыя грошы.* **2.** Таргуючыся, выгадаць, заплаціць менш на колькі-н. *В. восемсот тысяч рублёў.* ‖ *незак.* **вытаргó́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ТАТУІРАВАЦЬ** *гл.* татуіраваць.

**ВЫ́ТАЧЫЦЬ** *гл.* тачыць[1].

**ВЫТВАРА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак., што* (разм.). Выраблять, тварыць, вычвараць. *В. розныя штукі.* ‖ *зак.* **вы́тварыць**, -ру, -рыш, -рыць.

**ВЫТВО́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Самец, пакінуты для разводу патомства. *Жарабец-в.*

**ВЫТВО́РНЫ**, -ая, -ае. Утвораны ад іншага. *Вытворная велічыня. Вытворнае слова* (слова, утворанае ад іншага слова).

**ВЫТВО́РЦА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто вырабляе, стварае матэрыяльныя каштоўнасці. *Вытворцы прамысловых тавараў. Завод-в.*

**ВЫТВО́РЧАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Грамадскі працэс стварэння матэрыяльных даброт, які ахоплівае як прадукцыйныя сілы грамадства, так і вытворчыя адносіны людзей. *Таварная в.* **2.** Выраб, выпрацоўка, стварэнне якой-н. прадукцыі. *В. сталі. Фабрычная в.* **3.** Галіна, від народнай гаспадаркі. *Прамысловая, сельскагаспадарчая в.* **4.** Праца па непасрэдным вырабе прадукцыі. *Працаваць на вытворчасці. Вучыцца без адрыву ад вытворчасці.* ○ **Сродкі вытворчасці** — сукупнасць прадметаў і сродкаў працы: зямля, лясы, вада, нетры, сыравіна, прылады вытворчасці, вытворчыя будынкі, сродкі зносін і сувязі і пад. ‖ *прым.* **вытво́рчы**, -ая, -ае. *В. план. В. працэс. Вытворчая брыгада.*

**ВЫ́ТКАЦЬ**, -тку, -тчаш, -тча; -тчам, -тчаце, -ткуць; вы́тчы; -тканы; *зак., што.* Саткаць што-н., зрабіць тканнем. *В. палатно, узор.* ‖ *незак.* **вытыка́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ВЫТЛУМАЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Даступны для разумення.

**ВЫ́ТЛУМАЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Даступна растлумачыць, даць тлумачэнне чаму-н. *Чым в. яго адсутнасць?* ‖ *незак.* **вытлума́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **вытлумачэ́нне**, -я, *н.*

**ВЫТО́К**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Месца, адкуль выцякае рака, ручай. *Ад вытоку да вусця.* **2.** *перан., чаго.* Пачатак, першакрыніца чаго-н. *Вытокі культуры.*

**ВЫТО́ПЛІВАННЕ** *гл.* вытапіць.

**ВЫТО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* вытапіць.

**ВЫТО́ПТВАЦЬ** *гл.* вытаптаць.

**ВЫ́ТРАВІЦЬ** *гл.* травіць[1].

**ВЫ́ТРАСЦІ** *гл.* трэсці.

**ВЫТРАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., што.* **1.** *гл.* вытравіць. **2.** Тое, што і *травіць*[1].

**ВЫ́ТРУСІЦЬ**, -ушу, -усіш, -усіць; вы́трусі; -ушаны; *зак., што* (разм.). Трусячы, выкінуць, вытрасці. *В. попел з люлькі.* ‖ *незак.* **вытру́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ТРУЦІЦЬ** *гл.* труціць.

**ВЫ́ТРЫБУШЫЦЬ** *гл.* трыбушыць.

**ВЫТРЫВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** *што.* Цярпліва перанесці (боль, пакуты і пад.); выцерпець. **2.** *без дап.* Праявіць вытрымку, сцярпець. *Не в. і ўмяшацца ў размову.*

**ВЫ́ТРЫМАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Строга паслядоўны, устойлівы. *В. стыль дэкарацый.* **2.** Які ўмее валодаць сабой. *В. чалавек.* ‖ *наз.* **вы́трыманасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́ТРЫМАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Устаяць, стойка перанесці, не паддаўшыся ўздзеянню цяжару, ціску і пад. *Плаціна вытрымала напор паводкі. В. асаду.* **2.** *што.* Падвяргаючыся праверцы, аказацца годным. *В. прыёмныя экзамены.* **3.** *перан., што.* Праявіць цвёрдасць, не ўступіць. *В. сваё слова да канца* (не адступіць ад сказанага). **4.** *каго-што.* Пратрымаць дзе-н. на працягу якога-н. часу. *В. хворага дома.* **5.** *што.* Доўгім захоўваннем давесці да высокай якасці. *В. віно.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра тыражы кніг, спектаклі: ажыццявіцца, адбыцца ў якой-н. колькасці. *Падручнік вытрымаў многа выданняў. П'еса вытрымала некалькі пастановак.* ‖ *незак.* **вытры́млівацъ**, -аю, -аеш, -ае. *Не вытрымлівае ніякай крытыкі* (перан.: нікуды не варта).

**ВЫ́ТРЫМКА**[1], -і, *ДМ* -мцы, *ж.* **1.** Уменне валодаць сабой; стойкасць, цярплівасць. *Праявіць вытрымку.* **2.** Час, на працягу якога адкрыты аб'ектыў фатаграфічнага апарата. *Зняць з вялікай вытрымкай.*

**ВЫ́ТРЫМКА**[2], -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* Цытата, выпіска. *В. з даклада.*

**ВЫ́ТУПІЦЦА** *гл.* тупіцца.

**ВЫ́ТУПІЦЬ** *гл.* тупіць.

**ВЫ́ТУРЫЦЬ** *гл.* турыць.

**ВЫ́ТХНУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* Страціць моц, пах. *Хрэн вытхнуўся.* ‖ *незак.* **вытыха́цца**, -áецца.

**ВЫТЫКА́ЦЬ** *гл.* выткаць.

**ВЫ́ТЫНКАВАЦЬ** *гл.* тынкаваць.

**ВЫ́ТЫРКНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* (разм.). Высунуцца, паказацца адкуль-н. знутры. *В. з акопа.* ‖ *незак.* **вытырка́цца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ВЫ́ТЫРКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; вы́тыркнуў; -ні; -нуты; *зак., каго-што* (разм.). Выставіць, высунуць за межы чаго-н.; утварыць выступ. *Паплавок вытыркнуў з вады.* ‖ *незак.* **вытырка́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ВЫ́ФАРБАВАЦЦА** *гл.* фарбавацца.

**ВЫ́ФАРБАВАЦЬ** *гл.* фарбаваць.

**ВЫХАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто выхоўвае або выхаваў каго-н. *Школьны в.* ‖ *ж.* **выхава́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **выхава́льніцкі**, -ая, -ае.

**ВЫХАВА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м., каго-чаго* або *чый.* Той, хто выхоўваецца ці навучаецца дзе-н. *В. Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. В. суворваўскага вучылішча.* ‖ *ж.* **выхава́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ВЫХАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* выхаваць. **2.** Навыкі паводзін, прывітыя сям'ёй, школай, асяроддзем, якія праяўляюцца ў грамадскім і асабістым жыцці. *Добрае в.*

**ВЫ́ХАВАНЫ**, -ая, -ае. Які вызначаецца добрым выхаваннем, умее добра паводзіць сябе. *Выхаваныя дзеці. В. чалавек.* ‖ *наз.* **вы́хаванасць**, -і, *ж.*

**ВЫХАВА́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Тое, што і *выхавальнік.* ‖ *ж.* **выхава́целька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек.

**ВЫ́ХАВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго (што).* Вырасціць, даўшы адукацыю, навучыўшы паводзіць сябе. *В. дзяцей. В. кадры інтэлігенцыі.* **2.** *каго (што).* Шляхам сістэматычнага ўздзеяння, уплыву сфарміраваць чый-н. характар. *В. мужнага барацьбіта.* **3.** *што ў кім.* Прывіць што-н. каму-н., усяліць што-н. у каго-н. *В. у дзецях любоў да радзімы.* ‖ *незак.* **выхо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **выхава́нне**, -я, *н. В. дзяцей. В. волі. Узяць на в.; прым.* **выхава́ўчы**, -ая, -ае. *Выхаваўчая работа. В. працэс. В. сродак.*

**ВЫ́ХАД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* выйсці. **2.** З'яўленне на сцэне дзеючай асобы. **3.** Месца, праз якое выходзяць. *Пара мае два выхады. Запасны в.* **4.** *перан.* Спосаб выйсця з якога-н. становішча. **5.** Колькасць выпрацаванага прадукту (спец.). *В. круп першым гатункам.* ‖ *прым.* **выхадны́**, -áя, -óе (да 2, 3 і 5 знач.). *Выхадная роля* (нязначная, другарадная роля ў тэатральным прадстаўленні). *В. прадукт.*

**ВЫ́ХАДЗЕЦ**, -дца, *мн.* -дцы, -дцаў, *м.* **1.** Прышэлец, перасяленец з іншай краіны. *В. з Іспаніі.* **2.** Той, хто перайшоў з аднаго сацыяльнага асяроддзя ў другое. *В. з сялян.*

**ВЫ́ХАДЗІЦЬ**[1], -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Абысці пехатой многія мясціны. *В. усе навакольныя лясы.* **2.** *без дап.* Прахадзіць які-н. час. *Выхадзіў палавіну дня* **3.** *што.* Дабіцца чаго-н., доўга або неаднаразова ходзячы. *Нічога мы там не выхадзілі.* ‖ *незак.* **выхо́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ХАДЗІЦЬ**[2], -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што* (разм.). Клопатамі дапамагчы выгадаваць, выспець, выздаравець. *В. раненага. В. малады сад.* ‖ *незак.* **выхо́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ХАДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Учынак, які парушае агульныя нормы паводзін. *Непрыстойная в.*

**ВЫХАДНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* выйсці, выхад. **2.** Які надзяваецца не для працы; святочны, парадны. *В. касцюм.* **3.** Які выдаецца пры звальненні з работы. *Выходная дапамога.* **4.** *у знач. наз.* **выхадны́**, -о́га, *м.*, **выхадна́я**, -о́й, *ж.*, *мн.* -ы́я, -ы́х. Той, хто выкарыстоўвае свой выхадны дзень (разм.). *Ён сёння в.* **5.** *у знач. наз.* **выхадны́**, -о́га, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.* Тое, што і дзень адпачынку (разм.). *Паедзем у в. па грыбы.* ◊ **Выхадны дзень** — дзень адпачынку, дзень, вольны ад работы.

**ВЫ́ХАПІЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -плены; *зак., каго-што.* Схапіўшы, вырваць, выняць. *В. пакет з рук. В. шаблю з ножнаў.* ‖ *незак.* **выхо́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫХВАЛЯ́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ля́цы, *Т* -ай (-аю), *ж.*, *мн.* -і, -ля́к (разм.). Той (тая), хто любіць выхваляцца; хвалько.

**ВЫХВАЛЯ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* выхваляцца. **2.** Саманадзейная хвальба, самахвальства.

**ВЫХВАЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* (разм.). Расхвальваць самога сябе; хваліцца.

**ВЫ́ХВАСТАЦЬ** *гл.* хвастаць.

**ВЫ́ХЛАП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Выхад адпрацаваных газаў з цыліндра рухавіка ўнутранага згарання праз выхлапную трубу. ‖ *прым.* **выхлапны́**, -а́я, -о́е. *В. газ. В. клапан.*

**ВЫ́ХЛЕБТАЦЬ** *гл.* хлябтаць.

**ВЫХО́ДЖВАЦЬ** *гл.* выхадзіць[1–2].

**ВЫХО́ДЗІЦЬ** *гл.* выйсці.

**ВЫХО́ДНЫ**, -ая, -ае (афіц.). Пра карэспандэнцыю: адпраўлены з установы; *проціл.* ўваходны. *Выходная пошта.*

**ВЫ́ЦАДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Цэдзячы, выліць. *В. піва з бочкі.* ‖ *незак.* **выцэ́джваць**, -аю, аеш, -ае.

**ВЫ́ЦВЕРАЗІЦЬ**, -ражу, -разіш, -разіць; -ражаны; *зак., каго (што).* Зрабіць цвярозым. ‖ *незак.* **выцвяража́ць**, -а́ю, -а́еш,-а́е *і* **выцвярэ́жваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **вы́цверазіцца**, -ражуся, -разішся, -разіцца; *незак.* **выцвяража́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **выцвярэ́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **выцвяражэ́нне**, -я, *н.*

**ВЫ́ЦВІЛЫ**, -ая, -ае. Які страціў першапачатковы колер; вылінялы. *В. пінжак.*

**ВЫ́ЦВІСЦІ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цвіце; *зак.* Пазбавіцца яркасці афарбоўкі (ад часу, сонца і пад.). *Выцвілі шпалеры на сценах.* ‖ *незак.* **выцвіта́ць**, -а́е.

**ВЫЦВЯРЭ́ЗНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяльны пункт для выцвераження. *П'яны трапіў у в.*

**ВЫ́ЦЕРАБІЦЬ** *гл.* церабіць.

**ВЫ́ЦЕРПЕЦЬ**, -плю, -піш, -піць; *зак., што.* Цярпліва перанесці (боль, пакуты і пад.).

**ВЫ́ЦЕРУШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., што* (разм.). Трасучы, высыпаць (што-н. дробнае, сыпкае). *В. зерне з коласа.* ‖ *незак.* **выцяру́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЦЕРЦІ**, вы́тру, вы́траш, вы́тра; вы́цер, -церла; вы́тры; -церты; *зак.* **1.** *каго-што.* Выціраючы, зрабіць сухім, чыстым. *В. стол. В. пот з ілба.* **2.** *што.* Вынасіць, вышмуляць. *В. локці ў касцюме.* ‖ *незак.* **выціра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **вы́церціся**, вы́труся, вы́трашся, вы́трацца; вы́церся, -церлася; вы́трыся; *незак.* **выціра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫ́ЦЕРЦІСЯ**, вы́труся, вы́трашся, вы́трацца; вы́церся, -церлася; вы́трыся; *зак.* **1.** *гл.* выцерці. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вынасіцца, знасіцца ад трэння. *Паліто выцерлася.* ‖ *незак.* **выціра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ВЫ́ЦЕСНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што.* Замяніць сабой, вывеўшы з ужытку што-н. *Тэхніка выцесніла ручную працу.* ‖ *незак.* **выцясня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ВЫ́ЦЕЧЫ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цеча, -цекуць; вы́цек, -цекла; *зак.* Выліцца праз якую-н. адтуліну. *Вада выцекла з бочкі.* ‖ *незак.* **выцяка́ць**, -а́е.

**ВЫ́ЦІСНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* **1.** Ціскам дастаць або, ціскаючы, выпусціць вадкасць з чаго-н. *В. сок з лімона. В. слёзы* (перан.: вымушана заплакаць; разм.). *Слова не выціснеш з каго-н.* (перан.: не прымусіш слова сказаць; разм.). **2.** Ціскам выламаць. *В. шыбу.* **3.** *перан.* З цяжкасцю атрымаць што-н. *В. з гаспадаркі ўсё.* **4.** Тое, што і *выцесніць.* **5.** Зрабіць пры дапамозе ціснення. *В. надпіс залатымі літарамі.* ‖ *незак.* **выціска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ВЫЦЦЁ**, -я́, *н.* **1.** *гл.* выць. **2.** Працяжны крык некаторых жывёл (ваўка, сабакі і інш.). *Чулася в. сабакі.*

**ВЫ́ЦЫГАНІЦЬ** *гл.* цыганіць.

**ВЫЦЬ**, вы́ю, вы́еш, вы́е; *незак.* Працяжна і тужліва скуголіць; утвараць гукі, падобныя на выццё. *Воўк вые. Вые вецер. В. ад болю* (перан.: плакаць уголас; груб.). ‖ *наз.* **выццё**, -я́, *н.*

**ВЫЦЭ́ДЖВАЦЬ** *гл.* выцадзіць.

**ВЫ́ЦЯГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Выцягнуць у некалькі прыёмаў. *В. бярвенне з вады.* **2.** Пакрасці (разм.).

**ВЫЦЯ́ГВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** *гл.* выцягнуцца. **2.** Везці, цягнуць з вялікім напружаннем. *Конь аж выцягваўся ў аглоблях.*

**ВЫ́ЦЯГНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выпасці з чаго-н. ад штуршка, неасцярожнага руху; вышмаргнуцца. *Выцягнулася нітка з іголкі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Зрабіцца даўжэйшым, падоўжыцца. *Агонь выцягнуўся доўгай паласой.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Размясціцца на вялікай адлегласці ў адну лінію. *Вёска выцягнулася ўздоўж ракі.* **4.** Вырасці, стаць высокім. *Хлопчык за лета выцягнуўся.* **5.** Легчы, расцягнуўшыся, выпрастаўшыся. *В. на канапе.* **6.** Стаць прама, выпраміцца. *В. перад камандзірам.* ‖ *незак.* **выця́гвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЫ́ЦЯГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *што.* Прыклаўшы сілу, выняць умацаванае, завязлае і пад. або выдаліць што-н. уцягнутае. *В. кій з плота. В. воз з гразі. В. стрэмку.* **2.** *каго-што.* Дастаць, выняць, цягнучы адкуль-н. *В. шуфляду са стала. В. шчупака. В. усе жылы* (перан.: змучыць якімі-н. непрыемнасцямі). *З яго слова не выцягнеш* (перан.). **3.** *што.* Цягай, усмоктваннем выдаліць. *Пластыр выцягнуў увесь гной.* **4.** *што.* Нацягнуўшы, павялічыць у даўжыню. *В. скуру. В. дрот.* **5.** *што.* Выпрастаць, распасцерці. *В. рукі. Легчы, выцягнуўшы ногі.* **6.** *перан., каго.* Дапамагчы выйсці з цяжкага становішча, выбавіць (разм.). *В. з бяды.* **7.** *каго.* Прымусіць, пераканаць выйсці куды-н., пайсці адкуль-н. (разм.). *В. з дому.* **8.** *кагошто і без дап.* З цяжкасцю, з напружаннем выканаць, зрабіць што-н. ці дапамагчы каму-н. (разм.). *В. план. В. экзамен на чацвёрку. В. слабага вучня.* **9.** *што.* Потайкам забраць чужое; украсці (разм.). *В. грошы з кішэні.* ‖ *незак.* **выця́гваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **вы́цяжка**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* (да 3 і 4 знач.; спец.) *і* **выцяжэ́нне**, -я, *н.* (да 3 і 4 знач.; спец.).

**ВЫ́ЦЯЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* **1.** *гл.* выцягнуць. **2.** Рэчыва, хімічна здабытае з арганічнай тканкі. *В. слабай канцэнтрацыі.* ‖ *прым.* **вы́цяжачны**, -ая, -ае.

**ВЫЦЯЖНЫ́**, -а́я, -о́е. Прызначаны для выцяжкі (*гл.* выцягнуць у 3 знач.). *В. пластыр.*

**ВЫЦЯКА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *незак.* **1.** *гл.* выцечы. **2.** Пра раку: браць пачатак адкуль-н. *Рака выцякае з возера.*

**ВЫЦЯРУ́ШВАЦЬ** *гл.* выцерушыць.

**ВЫЦЯСНЯ́ЦЬ** *гл.* выцесніць.

**ВЫ́ЦЯЦЦА**, вы́тнуся, вы́тнешся, вы́тнецца; вы́цяўся, вы́цялася; вы́тніся; *зак., аб каго-што* і *чым.* Ударыцца, стукнуцца. *В. аб вушак. Балюча в. галавой.*

**ВЫ́ЦЯЦЬ**, вы́тну, вы́тнеш, вы́тне; вы́цяў, -цяла; вы́тні; вы́цяты; *зак., каго-што чым, па чым* або *аб што.* Нанесці ўдар, стукнуць. *В. бізуном. В. калена аб лаўку.*

**ВЫ́ЧАКАНІЦЬ** *гл.* чаканіць.

**ВЫ́ЧАКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Наўмысна прамарудзіўшы, дачакацца чаго-н. *В. зручны момант.*

**ВЫЧАРПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Усебаковы, поўны, закончаны. *В. адказ. Вычарпальна* (прысл.) *вывучыць пытанне.* ‖ *наз.* **вычарпа́льнасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́ЧАРПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Чэрпаючы, выдаліць, выбраць усё, да канца. *В. ваду з вядра.* **2.** *перан.* Зрасходаваць поўнасцю, давесці да канца. *В. усе запасы. В. праграму.* **3.** *перан.* Уладзіўшы, вырашыўшы, пакласці канец чаму-н. (кніжн.). *Інцыдэнт вычарпаны.* ‖ *незак.* **вычэ́рпваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЧАРЦІЦЬ**, -рчу, -рціш, -рціць; -рчаны; *зак., што.* Зрабіць чарцёж ча-

го-н., вырабіць чарчэннем. *В. план дома. В. схему.* || *незак.* **вычэ́рчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЧАСАЦЬ**[1], -чашу, -чашаш, -чаша; -чашы; -часаны; *зак., што.* Часаннем выдаліць, ачысціць, апрацаваць. *В. галаву. В. лён.* || *незак.* **вычэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЧАСАЦЬ**[2], -чашу, -чашаш, -чаша; -чашы; -часаны; *зак., што.* Вырабіць часаннем сякерай, склюдам або зрабіць гладкім пры дапамозе часання сякерай, склюдам. *В. дошку.* || *незак.* **вычэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ЧАСКІ**, -аў. Тое, што і *пачаскі. В. з лёну.*

**ВЫЧВАРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што* і *без дап.* (разм.). Рабіць што-н. незвычайнае, непрыстойнае. *Што вы тут вычвараеце? В. штукі.*

**ВЫ́ЧВАРНЫ**, -ая, -ае. **1.** Мудрагелісты, напышлівы. *В. ўбор.* **2.** Тое, што і *пачварны. Вычварныя прывіды.* || *наз.* **вы́чварнасць**, -і, *ж.*

**ВЫ́ЧУХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Справіцца з цяжкімі абставінамі, хваробай; акрыяць. *Так адхварэла на грып, што ледзь вычухалася.*

**ВЫ́ЧЫСЦІЦЦА** *гл.* чысціцца.

**ВЫ́ЧЫСЦІЦЬ** *гл.* чысціць.

**ВЫ́ЧЫТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Даведацца пра што-н. з прачытанага. *В. навіну.* **2.** Выверыць, чытаючы (спец.). *В. рукапіс.* || *незак.* **вычы́тваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **вы́чытка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* (да 2 знач.).

**ВЫЧЭ́РПВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак., чым* (кніжн.). Мець у чым-н. свой канец, мяжу. *Гэтым справа не вычэрпваецца.*

**ВЫЧЭ́РПВАЦЬ** *гл.* вычарпаць.

**ВЫЧЭ́РЧВАЦЬ** *гл.* вычарціць.

**ВЫЧЭ́СВАЦЬ**[1] *гл.* вычасаць[1].

**ВЫЧЭ́СВАЦЬ**[2] *гл.* вычасаць[2].

**ВЫ́ШАРАВАЦЬ** *гл.* шараваць.

**ВЫ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Высокая, пераважна конусападобная, пабудова спецыяльнага прызначэння; вежа. *Тэлевізійная в. Буравая в.* || *прым.* **вы́шачны**, -ая, -ае.

**ВЫ́ШКІ**, -шак. Насціл пад страхой у хляве або ў канюшні для сена, розных гаспадарчых прылад. *Класці сена на в.*

**ВЫ́ШМАЛЬЦАВАЦЬ** *гл.* шмальцаваць.

**ВЫ́ШМАРГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* Выцягнуць рыўком з чаго-н. *В. нітку з іголкі.* || *незак.* **вышмо́ргваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ШМУЛЯЦЬ** *гл.* шмуляць.

**ВЫ́ШПУРНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што* (разм.). Выкінуць вон. *В. венік за дзверы.* || *незак.* **вышпу́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ШТУКАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны; *зак., што* (разм.). Змайстраваць што-н., разумна камбінуючы, эканомна выкарыстоўваючы матэрыял. *В. цацку.* || *незак.* **вmuштуко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ШТУРХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго.* Штурхаючы, прымусіць выйсці. *В. за парог.* || *незак.* **вышту́рхваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **выштурхо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ШТУРХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., каго-што.* Штуршком, напорам прымусіць выйсці; выкінуць, выдаліць. *В. з пакоя каго-н.* || *незак.* **вышту́рхваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **выштурхо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ШУК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Дазнанне, якое папярэднічае суду, збор доказаў. *Крымінальны в.* (аддзел міліцыі, які займаецца раскрыццём і спыненнем крымінальных злачынстваў). || *прым.* **вышуко́вы**, -ая, -ае.

**ВЫШУКА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Той, хто займаецца вышуканнем. *Інжынер-в.* || *прым.* **вышука́льны**, -ая, -ае. *В. атрад.*

**ВЫШУКА́ННЕ**, -я, *н.* Даследаванне, звязанае з пошукамі. *Геалагічныя вышуканні. В. новых крыніц вітамінаў.*

**ВЫ́ШУКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Старанна шукаючы, знайсці, выявіць, адшукаць. *В. унутраныя рэзервы. В. прычыну для адлучкі.* || *незак.* **вышу́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ШЧАРБІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., што.* Нарабіць шчарбін на чым-н., вызубіць. *В. лязо сякеры.* || *незак.* **вышчарбля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **вышчэ́рбліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ШЧАРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *м. і ж.* (разм.). Той, хто часта шчэрыць зубы, любіць пасмяяцца, пажартаваць; вcase скаляка.

**ВЫ́ШЧАРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). **1.** Засмяяцца, паказаўшы зубы. **2.** Узлаваўшыся, злосна крыкнуць на каго-н. *В. на каго-н.* || *незак.* **вышчара́цца**, -а́ецца *і* **вышчэ́рвацца**, -аецца.

**ВЫ́ШЧАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* Прыадкрыўшы рот, паказаць, выскаліць зубы. *Сабака вышчарыў зубы.* || *незак.* **вышчара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **вышчэ́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЫ́ШЧЫПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Шчыпкамі вырваць. *В. цыбулі.* || *незак.* **вышчы́пваць**, -аю, -аеш, -ае. || *аднакр.* **вы́шчыпнуць**, -ну, -неш, -не; -ні.

**ВЫШЫВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для вышывання. *Вышывальныя ніткі.*

**ВЫШЫВА́ЛЬШЧЫЦА**, -ы, *мн.* -ы, -чыц, *ж.* Жанчына, якая займаецца вышываннем.

**ВЫШЫВА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Кашуля, аздобленая вышыўкай.

**ВЫШЫВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* вышыць. **2.** Тое, што вышыта або вышываецца. *Прыгожае в. на падушках.*

**ВЫШЫ́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Будаўнік вышынных будынкаў. **2.** Спецыяліст па вышынных палётах, пад'ёмах. *Лётчык-в. Альпініст-в.*

**ВЫШЫ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які праводзіцца, ажыццяўляецца на вялікай вышыні (у 2 знач.). *В. палёт.* **2.** Пра архітэктурныя збудаванні: вельмі высокі, шматпавярховы. *В. будынак. Вышыннае будаўніцтва.*

**ВЫШЫНЯ́**, -і́, *мн.* вышы́ні, вышы́нь, *ж.* **1.** *гл.* высокі. **2.** Прастора і адлегласць ад якога-н. пункта або зямлі ўверх. *Глядзець у вышыню. Ляцець на вялікай вышыні. Узняць на вялікую вышыню што-н.* (таксама перан.) **3.** Узвышша, пагорак. *Заняць вышыню. Авалодаць вышынямі ваеннага майстэрства* (перан.). **4.** У матэматыцы: адрэзак прамой, які злучае вяршыню геаметрычнай фігуры з яе асновай (або прадаўжэннем асновы) і перпендыкулярны ёй. *В. трохвугольніка.* ◊ **Быць на вышыні** (разм.) — адпавядаць самым строгім патрабаванням.

**ВЫ́ШЫЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -вак, *ж.* Вышыты ўзор на тканіне. *Ручнік з вышыўкай.* || *прым.* **вы́шывачны**, -ая, -ае.

**ВЫ́ШЫЦЬ**, -шыю, -шыеш, -шые; -шыты; *зак. што.* **1.** Вышываннем зрабіць на чым-н. узор, малюнак, адлюстраванне і пад. *В. партрэт. В. узор на рукаве.* **2.** Аздобіць вышыўкай (тканіну, скуру і пад.). *В. сукенку.* || *незак.* **вышыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **вышыва́нне**, -я, *н.*

**ВЫШЭ́Й. 1.** *прыназ. з Р.* За межамі, звыш чаго-н., па-за чым-н. *Гэта в. майго разумення.* **2.** *прыназ. з Р.* Больш за які-н. узровень або ўверх ад якога-н. месца. *Тэмпература в. нуля. Пабіць руку в. локця.* **3.** *прысл.* У папярэднім месцы прамовы, тэксту. *Як было сказана в.*

**ВЫШЭЙ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая мае знач.: 1) раней (пра сказанае, напісанае), напр.: *вышэйназваны, вышэйнапісаны;* 2) размешчаны ў напрамку ўверх ад чаго-н., напр.: *вышэйразмешчаны, вышэйляжачы;* 3) галоўны, кіруючы, напр. *вышэйстаячы* (пра арганізацыі, інстанцыі).

**ВЫШЭЙСТАЯ́ЧЫ**, -ая, -ае. Больш высокі ў адміністрацыйных адносінах. *Вышэйстаячая арганізацыя.*

**ВЫШЭ́ЙШЫ**, -ая, -ае. **1.** Больш высокі (у 1—3 знач.). *Гэты дом в. за той. Сёлетні ўраджай бульбы в. за леташні.* **2.** Самы галоўны, кіруючы. *В. орган дзяржаўнай улады. Вышэйшае камандаванне.* **3.** Пра самую высокую ступень у развіцці, навуцы, у сістэме адукацыі. *В. жывёльны свет. Вышэйшая нервовая дзейнасць* (спец.). *Вышэйшая матэматыка. Вышэйшая навучальная ўстанова.* ○ **Вышэйшая мера пакарання** — расстрэл, пазбаўленне жыцця.

**ВЫЯ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, выя́ў, *ж.* **1.** Тое, што і *праява* (у 2 знач.). **2.** Узнаўленне сродкамі мастацтва вонкавага, пачуццёва-канкрэтнага выгляду з'яў рэчаіснасці.

**ВЫ́ЯВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -віцца; *зак.* Наглядна праявіцца, стаць яўным. *Выявіліся недахопы. Выявіліся арганізатарскія здольнасці.* || *незак.* **выяўля́цца**, -я́ецца.

**ВЫ́ЯВІЦЬ**, -яўлю, -явіш, -явіць; -яўлены; *зак., каго-што.* Зрабіць уяўным, вы-

крыць. *В. талент. В. злачынства.* ‖ *незак.* **выяўляць**, -яю, -яеш, -яе.

**ВЫЯДАЦЬ** *гл.* выесці.

**ВЫЯЗДЖАЦЬ** *гл.* выехаць.

**ВЫЯЗНЫ** *гл.* выезд.

**ВЫЯСНІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніцца; *зак.* **1.** Стаць ясным, бясхмарным; распагодзіцца. *Неба выяснілася. К вечару выяснілася* (стала пагода; безас.). **2.** Тое, што і *высветліцца.* ‖ *незак.* **выясняцца**, -яецца *і* **выясніваецца**, -аецца.

**ВЫЯСНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што.* Тое, што і *высветліць.* ‖ *незак.* **выясняць**, -яю, -яеш, -яе.

**ВЫЯЎЛЕНЧЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які дае магчымасць наглядна паказаць, адлюстраваць што-н. *Выяўленчыя сродкі.* ○ **Выяўленчае мастацтва** — назва мастацтва, у творах якога вобраз увасоблены на плоскасці ці ў прасторы (жывапіс, графіка, скульптура, а таксама архітэктура). ‖ *наз.* **выяўленчасць**, -і, *ж.*

**ВЫЯЎНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Відавочны для ўсіх; бясспрэчны. *На твары быў в. смутак.* **2.** Выразны. *В. малюнак.* ‖ *наз.* **выяўнасць**, -і, *ж.*

**ВЭБ-...** Першая частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да сеткі Інтэрнэт, напр.: *вэб-выданне, вэб-камера, вэб-старонка* і пад.

**ВЭБ-САЙТ**, -а, *М* -йце, *м.* Месца ў сістэме сеткі Інтэрнэт для размяшчэння матэрыялу пра каго-, што-н.

**ВЭДЗГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* (разм.). Брудзіць, пэцкаць. ‖ *зак.* **завэдзгаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *наз.* **вэдзганне**, -я, *н.*

**ВЭКСАЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Грашовы дакумент — пісьмовае абавязацельства заплаціць каму-н. пэўную суму грошай ва ўстаноўлены тэрмін. *Прад'явіць в.* ‖ *прым.* **вэксальны**, -ая, -ае.

**ВЭЛЮМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кавалак тонкай празрыстай тканіны, прымацаваны да вянка або жаночага капелюша (з'яўляецца часткай жаночага шлюбнага ўбору). *Беласнежны в.* ‖ *прым.* **вэлюмны**, -ая, -ае.

**ВЭНДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *незак., што.* Правяльваць у дыме, рыхтуючы ежу. *В. кумпяк.* ‖ *наз.* **вэнджанне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **вяндлярны**, -ая, -ае.

**ВЭРХАЛ**, -у, *м.* (разм.). Вялікі беспарадак, неразбярыха; крык, шум. *Ухаце стаяў в.*

**ВЯДЗЕННЕ** *гл.* весці.

**ВЯДЗЁРНЫ** *гл.* вядро.

**ВЯДЗЬМАК**, ведзьмака, *мн.* ведзьмакі, ведзьмакоў, *м.* Тое, што і *вядзьмар.*

**ВЯДЗЬМАР**, ведзьмара, *мн.* ведзьмары, ведзьмароў, *м.* Той, хто займаецца вядзьмарствам. ‖ *ж.* **вядзьмарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак.

**ВЯДЗЬМАРСТВА**, -а, *н.* Заклінанні, якімі, на думку забабонных людзей, можна ўздзейнічаць на сілы прыроды, на людзей, вылечваць іх або наклікаць хваробы. ‖ *прым.* **вядзьмарскі**, -ая, -ае.

**ВЯДЗЬМАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* Займацца вядзьмарствам.

**ВЯДОМА. 1.** *пабочн. сл.* Зразумела, канечне, несумненна. *Нам хацелася, в., пачуць ад яго нешта незвычайнае.* **2.** *часц.* Бясспрэчна, так. *Ты напішаш мне? — В. напішу.*

**ВЯДОМЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Такі, пра якога ведаюць, маюць звесткі. *Вядомыя ўсім падзеі. Вядомая справа* (рэч) (канечне, зразумела; разм.). *Як вядома* (пабочн. сл.). **2.** Такі, пра дзейнасць якога ўсе добра ведаюць, які карыстаецца славай. *В. пісьменнік.* **3.** Агульнапрызнаны (у спалучэнні з назоўнікамі ацэначнага, характарызуючага значэння; разм.). *В. гуляка. В. махляр.* ‖ *наз.* **вядомасць**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.). *Набыць в.* (стаць вядомым у 2 знач.).

**ВЯДОМЫ**[2], -ая, -ае (спец.). Такі, які ідзе пад чыёй-н. камандай. *В. самалёт.*

**ВЯДРО**, -а, *мн.* вёдры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) вядры, вёдзер, вёдраў *і* вядзёр, *н.* **1.** Пасудзіна з ручкай у выглядзе дужкі для вадкасцей, сыпкіх рэчываў і пад. **2.** Мера вадкасцей, роўная 12,3 літра. ‖ *памянш.* **вядзерца**, -а, *мн.* -ы, -рцаў, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **вядзёрны**, -ая, -ае. *В. бачок* (ёмістасцю ў адно вядро).

**ВЯДУЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прыводзіцца ў рух рухавіком (спец.). *Вядучыя колы аўтамабіля.* **2.** Які ідзе наперадзе; галоўны. *В. самалёт.* **3.** Які з'яўляецца галоўным; кіруючы. *В. інстытут. В. спецыяліст.*

**ВЯЖУЧЫ**, -ая, -ае. Які мае ўласцівасць змацоўваць цвёрдыя рэчывы. *Вяжучыя матэрыялы.*

**ВЯЗ**, -а *і* (пра драўніну і *зб.*) -у, *м.* **1.** *мн.* вязы, -аў. Вялікае лісцевае дрэва сямейства вязавых з моцнай драўнінай. **2.** -а, *мн.* вязы, -оў. Драўляная перакладзіна ў санях. ‖ *прым.* **вязавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ВЯЗАЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для вязання. *Вязальная машына. Вязальныя пруткі.*

**ВЯЗАЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто вяжа або звязвае што-н. *Вязальшчыкі снапоў. Вязальшчыкі сетак.* ‖ *ж.* **вязальшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ВЯЗАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Вязаная рэч (кофта, світар і пад.).

**ВЯЗАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Тое, што і *вязка* (у 2 знач.). ‖ *прым.* **вязаначны**, -ая, -ае.

**ВЯЗАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* вязаць. **2.** Тое, што звязана або вяжацца (пруткамі, кручком і пад.). *Адкласці ўбок в.*

**ВЯЗАНЫ**, -ая, -ае. Зроблены вязаннем. *Вязаныя рукавіцы.*

**ВЯЗАЦЦА**, вяжуся, вяжашся, вяжацца; вяжыся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *з чым.* Знаходзіцца ў адпаведнасці з чым-н.; узгадняцца. *Версія не вяжацца з фактамі.* **2.** *да каго.* Прыставаць, чапляцца. *Не вяжыся да чалавека.* ◊ **Не вяжацца гаворка** (разм.) — не атрымліваецца.

**ВЯЗАЦЬ**, вяжу, вяжаш, вяжа; вяжы; вязаны; *незак.* **1.** *што.* Закручваючы жгутом, вяроўкай, сцягваць. *В. снапы.* **2.** *каго.* Сцягваць каму-н. вяроўкай, рэменем рукі, ногі, пазбаўляючы магчымасці рухацца. *В. разбойніка.* **3.** *што* і *без дап.* Плесці кручком, пруткамі або на машыне з якога-н. матэрыялу. *В. карункі. В. панчохі.* **4.** *што.* Змацоўваць чым-н. (спец.). *В. цагліны цэментам. В. бярвенне.* **5.** звычайна *безас.* Выклікаць вяжучае адчуванне. *Вяжа ў роце ад кіслага. Танін вяжа.* ‖ *зак.* **звязаць**, звяжу, звяжаш, звяжа; звяжы; звязаны (да 1—4 знач.). ‖ *наз.* **вязка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 1, 3 і 4 знач.) *і* **вязанне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**ВЯЗЕНЬ**, -зня, *мн.* -зні, -зняў, *м.* Той, хто знаходзіцца пад стражай; зняволены. *Вязні фашысцкіх засценкаў.*

**ВЯЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* **1.** *гл.* вязаць. **2.** *мн.* -і, -зак. Звязак аднародных прадметаў, звязаны ахапак чаго-н. *В. абаранкаў. В. дроў.*

**ВЯЗКІ**, -ая, -ае. **1.** Цягучы, клейкі. *Вязкае рэчыва.* **2.** Ліпкі, які засмоктвае, гразкі. *Вязкае балота.* ‖ *наз.* **вязкасць**, -і, *ж.*

**ВЯЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; вяз, -зла; -ні; *незак.* Засядаць у чым-н. вязкім; грузнуць. *Ногі вязнуць у дрыгве. В. у снезе.* ‖ *зак.* **завязнуць**, -ну, -неш, -не; завяз, -зла; -ні *і* **увязнуць**, -ну, -неш, -не; увяз, -зла; -ні.

**ВЯЗЬ**, -і, *ж.* Старажытнае дэкаратыўнае пісьмо, у якім літары звязаны ў непарыўны арнамент, а таксама злучэнне, спляценне сумежных літар у адзін складаны знак. *Напісаць славянскай вяззю.*

**ВЯКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Падаваць час ад часу слабы голас. **2.** Гаварыць пустое, не вартае ўвагі. ‖ *аднакр.* **вякнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **вяканне**, -я, *н.*

**ВЯЛАСЦЬ** *гл.* вялы.

**ВЯЛЕНЫ**, -ая, -ае. Прыгатаваны вяленнем. *Вяленая рыба.*

**ВЯЛІЗНЫ**, -ая, -ае. Вельмі значны па велічыні; надта вялікі. *Вялізнае дрэва.*

**ВЯЛІКА...** (а таксама **веліка...**). Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову **«вялікі»** (у 1 і 2 знач.), напр.: *вялікагаловы, вялікадзяржаўны.*

**ВЯЛІКАДЗЯРЖАЎНЫ**, -ая, -ае. Уласцівы вялікай дзяржаве, прасякнуты непавагай да малых нацый і народнасцей. ○ **Вялікадзяржаўны шавінізм** — ідэалогія і палітыка прадстаўнікоў пануючай нацыі, якія аб'яўляюць сваю нацыю вышэйшай сярод іншых.

**ВЯЛІКАСНЫ**, -ая, -ае (высок.). **1.** Важны, велічны. *В. позірк.* **2.** Урачыста ўзняты, поўны велічы. *В. гімн.* ‖ *наз.* **вялікаснасць**, -і, *ж.*

**ВЯЛІКАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Тое, што і *веліч* (у 2 знач.). **2.** Тытулаванне манархаў і іх жонак (у спалучэнні з займеннікамі «ваша», «іх», «яго», «яе»). *Яго імператарская в.*

**ВЯЛІКДЗЕНЬ**, -кадня, *м.* (з вялікай літары). Веснавое хрысціянскае свята, прысвечанае ўваскрэсенню Хрыста. ‖ *прым.* **велікодны**, -ая, -ае.

**ВЯЛІ́КІ**, -ая, -ае; бо́льшы; найвялі́кшы, найбо́льшы. **1.** Значны па велічыні, памерах, сіле; *процiл.* малы. *В. горад. В. будынак. Вялікая радасць. Вялікія беды пачынаюцца з малых* (прыказка). *Вялікая зямля* (мацярык). *Вялікая літара* (якая выступае над радком). **2.** Выдатны па сваім значэнні; які валодае ў высокай ступені той якасцю, якая знаходзіцца ў значэнні вызначаемага назоўніка. *Вялікая перамога. В. вучоны.* **3.** Большы, чым патрэбна, прасторны. *Гэтыя боты мне вялікія.* **4.** Дарослы (з пункту гледжання дзіцяці), а таксама (пра дзіця) такі, які выйшаў з дзіцячага ўзросту, падрослы. *Сын ужо в., пойдзе ў школу.* **5.** Значны па колькасці. *Вялікая сям'я. Вялікія грошы.* ◊ **Ад (з) вялікага розуму** (разм., іран.) — па дурасці. **Вялікае мноства** — вельмі многа. **Вялікія дзяржавы** — найбольш магутныя дзяржавы, якія адыгрываюць вядучую ролю ў сусветнай палітыцы і ў міжнародных адносінах.

**ВЯ́ЛІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ліцца; *незак.* Падсушвацца на сонцы, на адкрытым паветры (пра тое, што нарыхтоўваецца ў запас). ‖ *зак.* **правя́ліцца**, -ліцца. ‖ *наз.* **вя́ленне**, -я, *н.*

**ВЯ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *незак., што.* Падсушваць на сонцы, на адкрытым паветры для нарыхтоўкі ў запас. *В. рыбу.* ‖ *зак.* **правя́ліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены. ‖ *наз.* **вя́ленне**, -я, *н.*

**ВЯ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які страціў свежасць, звяў (пра расліны). *Вялая трава.* **2.** *перан.* Пазбаўлены бадзёрасці, энергіі. *В. працаўнік. В. настрой.* ‖ *наз.* **вя́ласць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ВЯЛЬМО́ЖА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Знатны і багаты саноўнік (уст.). *Царскія вяльможы.* **2.** Пра чалавека, які зазнаўся (іран.). *Вельмі рана адчуў сябе вяльможам.*

**ВЯЛЬМО́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца вяльможам; знатны (уст.). *В. пан.* **2.** Уласцівы вяльможы, зняважліва-паблажлівы (іран., неадабр.). *В. тон.*

**ВЯНДЛІ́НА**, -ы, *ж.* Вэнджанае прасоленае мяса. ‖ *прым.* **вяндлі́нны**, -ая, -ае.

**ВЯНДЛЯ́РНЫ** *гл.* вэндзіць.

**ВЯНЕ́Ц**, -нца́, *мн.* -нцы́, -нцо́ў, *м.* **1.** Тое, што і *вянок* (у 1 знач.). **2.** Карона, якую трымаюць над галовамі маладых у час вянчання (уст.). *Пайсці пад в.* (уступіць у шлюб). **3.** *перан., чаго.* Апошняя найвышэйшая ступень, паспяховае завяршэнне чаго-н. як узнагарода за працу, старанні (высок.). *В. дасягненняў.* **4.** Арэол, радужны круг вакол нябеснага свяціла, вакол галавы на іконе. **5.** У драўляным зрубе: чатыры бервяны як узаемазвязанае звяно. ‖ *памянш.* **ве́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 4 знач.). ‖ *прым.* **вяне́чны**, -ая, -ае (да 1, 2, 4 і 5 знач.) *і* **вянцо́вы**, -ая, -ае (да 1, 2, 4 і 5 знач.).

**ВЯНЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* вянец. **2.** Які мае адносіны да сардэчных сасудаў (спец.). *Вянечнае шво. Вянечныя артэрыі.*

**ВЯНО́ЗНЫ** *гл.* вена.

**ВЯНО́К**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.* **1.** Сплецены ў кружок лісты, кветкі. *В. з валошак. Лаўровы в.* **2.** Тое, што і вянец (у 5 знач.). **3.** Тое, што і *нізка*[1], *вязка* (у 2 знач.). *В. грыбоў.* ‖ *памянш.* **вяно́чак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **вяно́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ВЯНО́ЧАК**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* **1.** *гл.* вянок. **2.** Частка кветкі, якая складаецца з пялёсткаў; венчык (спец.).

**ВЯ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; вя́нуў *і* вяў, вя́нула *і* вя́ла; вянь; *незак.* Страчваць свежасць, сохнуць. *Лісце вяне.* ◊ **Вушы вянуць** (разм.) — нельга, не хочацца слухаць (што-н. бязглуздае, хлуслівае, непрыстойнае). ‖ *зак.* **звя́нуць**, -ну, -неш, -не; звянь *і* **завя́нуць**, -ну, -неш, -не; завя́нь.

**ВЯНЧА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* Уступаць у шлюб паводле царкоўнага абраду. ‖ *зак.* **павянча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **звянча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **вянча́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **вянча́льны**, -ая, -ае.

**ВЯНЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак.* **1.** *каго.* Аб'ядноўваць шлюбам па царкоўным абрадзе. *В. маладых.* **2.** *перан., што.* Завяршаць сабой, знаходзячыся зверху чаго-н. *Вежу вянчала рубінавая зорка.* ‖ *зак.* **павянча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны (да 1 знач.), **звянча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны (да 1 знач.) *і* **увянча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны (да 2 знач.). ‖ *наз.* **вянча́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **вянча́льны**, -ая, -ае.

**ВЯПРО́ВЫ** *гл.* вепр.

**ВЯПРУ́К**, вепрука́, *мн.* вепрукі́, вепруко́ў, *м.* Самец свойскай свінні. ‖ *памянш.* **вепручо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* ‖ *прым.* **вепручы́ны**, -ая, -ае.

**ВЯРБА́**, -ы́, *мн.* ве́рбы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) вярбы́, ве́рбаў, *ж.* Дрэвавая і кустовая расліна сямейства вярбовых з разложыстымі галінамі і вузкім лісцем. ‖ *памянш.* **вярбі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **вярбо́вы**, -ая, -ае.

**ВЯРБІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -бі́н, *ж.* Адно дрэва вярбы. ‖ *памянш.* **вярбі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**ВЯРБЛЮ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйная жвачная аднагорбая або двухгорбая жывёліна пустынь і сухіх стэпаў. ‖ *прым.* **вярблю́джы**, -ая, -ае.

**ВЯРБЛЮ́ДЗІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -дзіц, *ж.* Самка вярблюда.

**ВЯРБНЯ́К**, вербняку́, *мн.* вербнякі́, вербняко́ў, *м., зб.* Зараснік вярбы; маладыя вербы. ‖ *прым.* **вербняко́вы**, -ая, -ае.

**ВЯРБО́ВАЧНЫ** *гл.* вербаваць.

**ВЯРБО́ЎКА** *гл.* вербаваць.

**ВЯРБО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто вярбуе куды-н. ‖ *ж.* **вярбо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **вярбо́ўшчыцкі**, -ая, -ае.

**ВЯРГІ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -гі́нь, *ж.* Травяністая дэкаратыўная расліна сямейства складанакветных з вялікімі яркімі кветкамі рознага колеру і клубнепадобным карэннем. ‖ *прым.* **вяргі́невы**, -ая, -ае.

**ВЯРЗЦІ́**, -зу́, -зе́ш, -зе́; -зём, верзяце́, -зу́ць; вёрз, вярзла́; вярзі́; *незак., што* (разм.). Гаварыць недарэчнасці, бязглуздзіцу. *В. лухту.* ‖ *зак.* **звярзці́**, -зу́, -зе́ш, -зе́; -зём, звярзяце́, -зу́ць; звярзла́, -ло́; -зі́. ‖ *наз.* **вярзе́нне**, -я, *н.*

**ВЯРЗЦІ́СЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -зе́цца; вёрзся, вярзла́ся, -ло́ся; *незак.* (разм.). Бязладна ўзнікаць, здавацца ва ўяўленні; блюзніцца. ‖ *зак.* **прывярзці́ся**, -зе́цца *і* **звярзці́ся**, -зе́цца.

**ВЯРНУ́ЦЦА**[1], -ну́ся, ве́рнешся, ве́рнецца; -ні́ся; *зак.* Прыйсці, прыехаць назад; звярнуцца да чаго-н. зноў. *В. да сваёй пастаяннай работы.* ‖ *незак.* **вярта́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **варо́чацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ВЯРНУ́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., ве́рнецца; *незак.* (разм.). Нахіляцца на бок. *Човен вернецца.*

**ВЯРНУ́ЦЬ**[1], -ну́, ве́рнеш, ве́рне; -ні́; ве́рнуты; *зак., каго-што.* **1.** Аддаць узятае назад. *В. доўг.* **2.** Прымусіць або даць магчымасць вярнуцца назад. *В. дамоў. В. бацьку дзецям. В. да жыцця* (вылечыць). ‖ *незак.* **вярта́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **варо́чаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ВЯРНУ́ЦЬ**[2], -ну́, ве́рнеш, ве́рне; -ні́; *незак., што.* **1.** Мяняць напрамак руху, паварочваць. *В. машыну ўправа. В. нос ад чаго-н.* (адносіцца да каго-, чаго-н. з пагардай, грэбаваць кім-, чым-н.). *З душы верне* (брыдка думаць пра што-н., глядзець на што-н.). **2.** Валіць на бок, пераварочваць. *В. воз.* **3.** *перан.* Схіляць да чаго-н., даваць пэўны кірунак (думкам, размовам і пад.; разм.). *Мне вядома, куды ён верне.* **4.** *перан., на каго-што.* Перакладваць віну на іншага (разм.). *Сам вінаваты, а на другіх верне.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *з чаго.* Рухацца, падаць, узнімацца суцэльнай плынню. *Дым верне з коміна.* **6.** З цяжкасцю ўзнімаць пласты зямлі. *Трактар верне дзёран.*

**ВЯРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* Выраб з кручаных або вітых у некалькі столак доўгіх пасмаў пянькі ці іншых матэрыялаў, які ўжыв. для звязвання і іншых патрэб. *Увязаць воз вяроўкай.* ◊ **Вяроўка плача** *па кім* (разм.) — пра таго, хто заслугоўвае пакарання. ‖ *памянш.* **вяро́вачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **вяро́вачны**, -ая, -ае.

**ВЯРСТА́**, -ы́, *ДМ* -сце́, *мн.* вёрсты *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) вярсты́, вёрст *і* -аў, *ж.* **1.** Мера даўжыні, роўная 1,06 км. *Прайшоў з вярсту* (гэта значыць каля вярсты). *За вярсту ўбачыць што-н.* (здалёк). **2.** Дарожны слуп, які адзначае гэту меру (уст.). ‖ *прым.* **верставы́**, -а́я, -о́е. *В. слуп.*

**ВЯРСТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак., што* (спец.). Размяшчаць друкарскі набор па старонках. *В. кнігу.* ‖ *зак.* **звярста́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны. ‖ *наз.* **вярста́нне**, -я, *н. і* **вёрстка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**ВЯРТА́ЦЦА** *гл.* вярнуцца[1].

**ВЯРТА́ЦЬ** *гл.* вярнуць[1].

**ВЯРТЛЮ́Г**, вертлюга́, *мн.* вертлюгі́, вертлюго́ў, *м.* (спец.). **1.** Рухомы канец сцегнавой косці, які ўваходзіць у чашку таза. **2.** Злучальнае звяно дзвюх частак механізма, якое дазваляе адной з іх вярцецца вакол сваёй восі. ‖ *прым.* **вяртлю́жны**, -ая, -ае.

**ВЯРТЛЯ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Вельмі рухавы, непаседлівы. *Вяртлявае дзіця.* ‖ *наз.* **вяртля́васць**, -і, *ж.*

**ВЯРХІ́** *гл.* верх.

**ВЯРХО́ВЫ**, -ая, -ае. Размешчаны ў верхнім цячэнні ракі.

**ВЯРХО́М**, *прысл.* **1.** Пра язду: на спіне жывёлы. *В. на кані.* **2.** *перан.* Седзячы на кім-, чым-н., як на спіне каня. *В. на крэсле. Скакаць в. на кійку.*

**ВЯРХО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Верхняе цячэнне ракі і мясцовасць, якая прылягае да яе. *У вярхоўях Бярэзіны.*

**ВЯРХО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Галоўны, найвышэйшы. *В. Галоўнакамандуючы. В. Суд Рэспублікі Беларусь.*

**ВЯРЦЕ́ЦЦА**, вярчу́ся, ве́рцішся, ве́рціцца; вярці́ся; *незак.* Тое, што і *круціцца.* ‖ *наз.* **вярчэ́нне**, -я, *н.*; *прым.* **вярча́льны**, -ая, -ае. *В. рух.*

**ВЯРЦЕ́ЦЬ**, вярчу́, ве́рціш, ве́рціць; вярці́; *незак.* Тое, што і *круціць.* ‖ *наз.* **вярчэ́нне**, -я, *н.*

**ВЯРШО́К**[1], -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.* Старая мера даўжыні, роўная 4,4 см. *У аршыне шаснаццаць вяршкоў.* ‖ *прым.* **вяршко́вы**, -ая, -ае.

**ВЯРШО́К**[2], -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.* **1.** Верхняя частка чаго-н.; верх, верхавіна. *На самым вяршку. В. дрэва. Вяршкі і карэньчыкі.* **2.** *мн.* Густы тлусты верхні слой на малацэ, якое адстаялася. *Збіраць вяршкі* (таксама перан.: браць самае лепшае). **3.** *мн.* Тое, што і *верх* (у 7 знач.). ‖ *прым.* **вяршко́вы**, -ая, -ае.

**ВЯРШЫ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -шы́нь, *ж.* Самы верх, верхняя частка (гары, дрэва і пад.). *В. Гімалаяў. Вяршыні дубоў. На вяршыні славы* (перан.). *В. вугла* (пункт перасячэння дзвюх прамых, што ўтвараюць вугал). ‖ *прым.* **вяршы́нны**, -ая, -ае.

**ВЯРШЫ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (кніжн.). Той, хто вяршыць што-н., распараджаецца чым-н. *В. лёсу.* ‖ *ж.* **вяршы́целька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек.

**ВЯРШЫ́ЦЬ**, вяршу́, вяршы́ш, вяршы́ць; вяршы́м, вершыце́, вярша́ць; *незак.* **1.** *што.* Рабіць верх, верхнюю частку чаго-н., завяршаць. *В. страху. В. стог.* **2.** *што* і *чым.* Вырашаць, распараджацца (кніжн.). *В. справы.*

**ВЯРЫ́ГІ**, -ры́г *і* -аў. Жалезныя ланцугі, якія носяць на целе рэлігійныя фанатыкі. ‖ *прым.* **вяры́жны**, -ая, -ае.

**ВЯРЫ́ЦЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **вярыцельная грамата** — урадавы дакумент, які сведчыць аб назначэнні каго-н. дыпламатычным прадстаўніком.

**ВЯРЭ́ДЗІЦЦА**, вярэ́джуся, вярэ́дзішся, вярэ́дзіцца; *незак.* (разм.). Тое, што і *верадзіцца.*

**ВЯРЭ́ДЗІЦЬ**, вярэ́джу, вярэ́дзіш, вярэ́дзіць; *незак., што* (разм.). Тое, што і *верадзіць.* ‖ *зак.* **звярэ́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны *і* **развярэ́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны.

**ВЯСЕ́ЛЛЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Абрад шлюбу і ўрачыстасць, святкаванне, звязанае з гэтым. *Спраўляць в.* **2.** Шлюбны поезд. *Дзеці крычалі: «Вяселле едзе!»* **3.** Бесклапотна-радасны настрой, які выражаецца ў схільнасці да забаў, вясёлых гульняў (разм.). *Праводзіць час у вяселлі.* ‖ *памянш.* **вясе́лейка**, -а, *мн.* -і, -аў, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **вясе́льны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ВЯСЕ́ННІ**, -яя, -яе. Тое, што і *веснавы.*

**ВЯСЁЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Шматкаляровая дугападобная паласа на небе, якая ўзнікае ад праламлення сонечных прамянёў у дажджавых кроплях. *Колеры вясёлкі* (колеры сонечнага спектра). ‖ *прым.* **вясёлкавы**, -ая, -ае.

**ВЯСЁЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Поўны радасці, весялосці, які выражае радасць, весялосць. *В. настрой. В. твор. Весела* (прысл.) *смяяцца.* **2.** Які выклікае, нараджае весялосць. *В. спектакль.* **3.** Прыемны для вока, не змрочны. *Вясёлая расфарбоўка. В. ранак.* ‖ *памянш.* **вясёленькі**, -ая, -ае. ‖ *наз.* **весяло́сць**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ВЯСКО́ВЕЦ**, -ко́ўца, *мн.* -ко́ўцы, -ко́ўцаў, *м.* Жыхар вёскі; селянін. ‖ *ж.* **вяско́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ко́вак.

**ВЯСКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* вёска. **2.** Які мае адносіны да жыцця і дзейнасці вёскі; сельскі. *В. клуб. В. хлопец. Вясковая інтэлігенцыя.*

**ВЯСЛО́**[1], -а́, *мн.* вёслы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) вяслы́, вёсел *і* вёслаў, *н.* Лопасць з доўгім дзяржаннем, прызначаная для веславання. ‖ *прым.* **вёславы**, -ая, -ае, **веславы́**, -а́я, -о́е *і* **вёсельны**, -ая, -ае.

**ВЯСЛО́**[2], -а́, *мн.* вёслы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) вяслы́, вёсел *і* вёслаў, *н.* Нізка аднародных прадметаў. *В. абаранкаў.*

**ВЯСЛЯ́Р**, весляра́, *мн.* весляры́, весляро́ў, *м.* Той, хто вяслуе. *Натрэніраваны в.*

**ВЯСЛЯ́РНЫ** *гл.* веславаць.

**ВЯСНА́**, -ы́, *мн.* вёсны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) вясны́, вёсен *і* вёснаў, *ж.* Пара года, якая ідзе за зімой. *Ранняя в. В. жыцця* (перан.: пра маладосць). ‖ *прым.* **веснавы́**, -а́я, -о́е, **вясно́вы**, -ая, -ае *і* **вясе́нні**, -яя, -яе.

**ВЯСНО́Й** *і* **ВЯСНО́Ю**, *прысл.* У час вясны.

**ВЯСНУ́ШКАВАТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты вяснушкамі, з вяснушкамі. *В. твар.*

**ВЯСНУ́ШКІ**, -шак, *адз.* -шка, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* Пігментныя плямкі карычневага або жоўтага колеру на скуры, якія паяўляюцца ў некаторых людзей вясной. *Увесь у вяснушках.* ‖ *прым.* **вясну́шачны**, -ая, -ае.

**ВЯСНЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Абрадавая веснавая песня. *Дзяўчаты спявалі вяснянкі.* ‖ *прым.* **вясня́нкавы**, -ая, -ае.

**ВЯСТУ́Н**, вестуна́, *мн.* вестуны́, вестуно́ў, *м.* (кніжн.). Той, хто сваім з'яўленнем нагадвае пра набліжэнне чаго-н. *Гракі — першыя вестуны вясны.* ‖ *ж.* **вясту́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ВЯТРА́К**, ветрака́, *мн.* ветракі́, ветрако́ў, *м.* Ветраны млын.

**ВЯТРО́ЎНІК**, -у, *м.* Шматгадовая лугавая травяністая расліна сямейства ружакветных з ружовым або жаўтавата-белым суквеццем. ‖ *прым.* **вятро́ўнікавы**, -ая, -ае.

**ВЯТРЫ́ШЧА**, -шча, *м.* (разм.). Моцны, пранізлівы вецер.

**ВЯХА́**, -і́, *мн.* ве́хі *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) вяхі́, вех, *ж.* **1.** Шост, тычка, звычайна з пучком травы ці галінак на версе для абазначэння мяжы, напрамку, руху. **2.** *перан., чаго;* звычайна *мн.* Важны момант, этап у развіцці чаго-н. *Асноўныя вехі творчасці пісьменніка.*

**ВЯХІ́Р**, вехіра́, *мн.* вехіры́, вехіро́ў, *м.* Буйны лясны голуб.

**ВЯХО́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Тое, што і *мачалка.* ‖ *прым.* **вяхо́тачны**, -ая, -ае *і* **вяхо́ткавы**, -ая, -ае.

**ВЯЧО́РКІ**, -рак. Зборы вясковай моладзі зімовымі або асеннімі вечарамі для сумеснай работы, забавы.

**ВЯЧЫ́СТЫ**, -ая, -ае (паэт.). Векавечны, векавы.

**ВЯЧЭ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Вячэрняя яда. *Позняя в.* **2.** Страва, прыгатаваная для вячэрняй яды. *В. стыне.*

**ВЯЧЭ́РАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Есці вячэру. *Час в.* ‖ *зак.* **павячэ́раць**, -аю, -аеш, -ае. *Прынесці в.*

**ВЯЧЭ́РНІ** *гл.* вечар.

**ВЯЧЭ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Навучэнец вячэрняй навучальнай установы. ‖ *ж.* **вячэ́рніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ВЯЧЭ́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Вячэрняя царкоўная служба.

**ВЯШЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Асоба, якая ўсенародна апавяшчала што-н. (гіст.). **2.** *перан., чаго.* Той, хто абвяшчае, сцвярджае што-н. (высок.). *В. вызваленчых ідэй.*

**ВЯШЧА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *незак.* **1.** *што.* Прадказваць, прарочыць. *В. бяду.* **2.** Пра радыёстанцыі: перадаваць для слухання. ‖ *наз.* **вяшча́нне**, -я, *н.*; *прым.* **вяшча́льны**, -ая, -ае.

**ВЯШЧУ́Н**, вешчуна́, *мн.* вешчуны́, вешчуно́ў, *м.* **1.** Прадказальнік, прадракальнік. *В. буры.* **2.** Тое, што і *вяшчальнік* (у 2 знач.). ‖ *ж.* **вяшчу́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак *і* **вяшчу́ння**, -і, *мн.* -і, -яў.

**ВЯШЧУ́НСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Прадказанне. *В. збылося.*



**ГА**[1], *нескл., м.* Скарочанае абазначэнне слова гектар; ужыв. звычайна пры лічэбніку. *Засеяна 180 га лёну.*

**ГА**[2], *часц.* **1.** Ужыв. як пытальны водгук на зварот. *Га? Што?* **2.** Ужыв. пры паўторным звароце з мэтай прыцягнуць увагу. *Тата, га, тата!*

**ГА**[3], *выкл.* (з працяжным вымаўленнем — **га-а-а!**). Выражае здзіўленне, радасць пры сустрэчы з кім-н. *Га! І ты тут!*

**ГААЛЯ́Н**, -у, *м.* Аднагадовая расліна сямейства злакавых з высокім сцяблом, пакрытым лісцем; род сорга. ‖ *прым.* **гаалянавы**, -ая, -ае.

**ГАБАІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на габоі. ‖ *ж.* **габаістка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ГАБАРДЗІ́Н**, -у, *м.* Шарсцяная тканіна для паліто і касцюмаў. ‖ *прым.* **габардзінавы**, -ая, -ае.

**ГАБАРЫ́Т**, -у, *М* -рыце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гранічныя знешнія абрысы прадметаў (збудаванняў, машын, станкоў і пад.), а таксама аб'ём, велічыня прадметаў. *Габарыты вагонаў. Г. прыбліжэння.* ‖ *прым.* **габарытны**, -ая, -ае.

**ГАБЕЛЕ́Н**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Насценны дыван з вытканымі ўзорамі, малюнкам, а таксама вытканая карціна. **2.** -у. Шчыльная дэкаратыўная абівачная тканіна. ‖ *прым.* **габеленавы**, -ая, -ае.

**ГАБЛЮ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Стружка з-пад рубанка. ‖ *прым.* **габлюшачны**, -ая, -ае *і* **габлюшкавы**, -ая, -ае.

**ГАБЛЯВА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца апрацоўкай драўніны гэблем. ‖ *ж.* **габлявальшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ГАБЛЯВА́ЦЬ**, -люю, -люеш, -люе; -люй; -ляваны; *незак., што і без дап.* Зразаць тонкі слой з паверхні драўніны пры апрацоўцы яе гэблем, рубанкам. *Г. дошку.* ‖ *зак.* **выгаблеваць**, -люю, -люеш, -люе; -люй; -леваны. ‖ *наз.* **габляванне**, -я, *н. і* **габлёўка**, -і, *ДМ* -лёўцы, *ж.* ‖ *прым.* **габлявальны**, -ая, -ае. *Г. інструмент.*

**ГАБО́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Драўляны духавы музычны інструмент, па вышыні гуку сярэдні паміж кларнетам і флейтай. ‖ *прым.* **габойны**, -ая, -ае.

**ГА́ВАНЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Прыбярэжная частка воднай прасторы, укрытая ад ветру, хваляў і цячэнняў, месца стаянкі суднаў. *Ціхая г.* ‖ *прым.* **гаванскі**, -ая, -ае.

**ГАВАРКІ́**, -ая, -ое. Схільны да размоў, ахвочы пагаварыць. *Г. сусед.*

**ГАВАРЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *гаваркі.* ‖ *наз.* **гаварлівасць**, -і, *ж.*

**ГАВАРУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -оў, *м.* (разм.). Чалавек, які любіць многа гаварыць. ‖ *ж.* **гаваруха**, -і, *ДМ* -рýсе, *мн.* -і, -рýх.

**ГАВАРЫ́ЛЬНЯ**, -і, *ж.* (разм., неадабр.). Пасяджэнне ці сход, дзе замест справы займаюцца пустымі размовамі.

**ГАВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -вóрыцца; *незак.* Выказвацца, расказвацца, паведамляцца, вымаўляцца, выгаворвацца. *На сходзе многа гаварылася пра дысцыпліну. Сёння дрэнна гаварылася.* ◊ **Як гаворыцца** — як прынята гаварыць.

**ГАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -вóрыш, -вóрыць; -вóраны; *незак.* **1.** Валодаць вуснай мовай, валодаць якой-н. мовай, вымаўляць словы. *Дзіця яшчэ мала гаворыць. Г. па-іспанску. Манера г.* **2.** *што і без дап.* Выражаць думкі, паведамляць. *Г. праўду. Г. павольна. Газета гаворыць пра дасягненні беларускіх ільнаводаў.* **3.** *аб кім-чым.* Выказваць думку, меркаванне, абмяркоўваць што-н. *Аб поспехах айчыннай касманаўтыкі гаворыць уся краіна.* **4.** *з кім.* Весці гутарку, размаўляць. *Г. з табою немагчыма.* **5.** *перан., пра што, аб чым і за што.* Сведчыць, паказваць на што-н. *Гэты выпадак гаворыць пра многае. Гэта гаворыць само за сябе.* **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан., у кім.* Праяўляцца ў чыіх-н. паводзінах, словах і пад. *У ім гаворыць сумленне.* ◊ **Гаварыць на розных мовах** — не разумець адзін аднаго. ‖ *зак.* **сказа́ць**, скажу́, ска́жаш, ска́жа; скажы́; ска́заны (да 2 і 3 знач.). ‖ *наз.* **гаварэнне**, -я, *н.* (да 1—4 знач.).

**ГАВЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* У веруючых: пасціць і хадзіць у царкву, рыхтуючыся да споведзі і прычасця. ‖ *наз.* **гавенне**, -я, *н.*

**ГАВО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Дзелавая ці сардэчная размова; словы, выказванне аднаго з суразмоўцаў. *Г. ў іх не ладзілася. Пра што ідзе г.?* **2.** Чуткі, пагалоска. *Пайшла нядобрая г. па вёсцы.* **3.** Мясцовая разнавіднасць тэрытарыяльнага дыялекту. *Чэрвеньская г. Гаворкі Маладзечаншчыны.* **4.** Мова як сродак зносін паміж людзьмі (звычайна пра вусную гутарковую мову). *Госці з Кіева добра разумелі беларускую гаворку.* ◊ **Пустая гаворка** — непатрэбная, бескарысная размова; балбатня.

**ГАВО́Т**, -а, *М* -вóце, *м.* Старадаўні французскі танец, а таксама музыка да гэтага танца.

**ГА́ГА**, -і, *ДМ* гáзе, *мн.* -і, гаг, *ж.* Палярная нырцовая качка з каштоўным мяккім цёплым пухам. ‖ *прым.* **гагачы**, -ая, -ае.

**ГАГАЛІ́НЫ** *гл.* гогаль.

**ГАГА́РА**, -ы, *мн.* -ы, -гáр, *ж.* Вялікая паўночная вадаплаўная птушка з густым пер'ем. ‖ *прым.* **гагаравы**, -ая, -ае *і* **гагарыны**, -ая, -ае. *Атрад гагаравых* (наз.). *Гагарынае пер'е.*

**ГАГА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Паўночная марская птушка велічынёй з невялікую качку.

**ГАГАТА́ЦЬ**, -гачу́, -гóчаш, -гóча; -гачы́; *незак.* **1.** Пра гусей: абзывацца крыкам, падобным на гукі «га-га-га». **2.** Моцна, нястрымана смяяцца (разм.). ‖ *наз.* **гагатанне**, -я, *н.*

**ГАГАЎЗЫ**, -аў, *адз.* -ўз, -а, *м.* Цюркскі народ, які жыве ў Малдове, Украіне і Балгарыі. ‖ *ж.* **гагаўзка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак. ‖ *прым.* **гагаўзскі**, -ая, -ае. *Гагаузская мова.*

**ГАД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** звычайна *мн.* Жывёла сямейства паўзуноў (змяя, гадзюка і пад.). **2.** *перан.* Агідны чалавек, гадзіна (у 2 знач.; пагард.). *Фашысцкія гады.* ‖ *прым.* **гадскі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ГАДАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Месца для развядзення і вырошчвання раслін або жывёл. *Г. фруктовых дрэў.* ‖ *прым.* **гадавальніцкі**, -ая, -ае. *Гадавальніцкая гаспадарка.*

**ГАДАВА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м., каго-чаго* або *чый.* Той, хто выхаваны, вывучаны кім-, чым-н. *Г. кансерваторыі.* ‖ *ж.* **гадаванка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ГАДАВА́ЦЬ**, -дўю, -дўеш, -дўе; -дўй; -даваны; *незак., каго-што.* **1.** Даглядаючы, выхоўваючы, забяспечыць рост, развіццё каго-н. *Г. дзяцей. Г. цяля.* **2.** Адрошчваць (валасы, ногці і пад.). *Г. бараду.* ‖ *наз.* **гадаванне**, -я, *н. і* **гадоўля**, -і, *ж.* (да 1 знач.). *Конь сваёй гадоўлі.*

**ГАДАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -він, *ж.* Каляндарная дата, дзень, у які спаўняецца яшчэ адзін год з часу якой-н. падзеі. *Г. перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.*

**ГАДАВЫ́** *гл.* год.

**ГА́ДАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* (разм.). **1.** Прадмет, які выклікае непрыемнае, агіднае пачуццё. *Выкінь гэту г.* **2.** Агідны, нізкі ўчынак; брыдкія словы. *Рабіць гадасці. Гаварыць гадасці.*

**ГАДАЎЁ**, -я́, *н., зб.* **1.** Гадзюкі, гады (у 1 знач.). *У балоце многа гадаўя.* **2.** Пра людзей, дзеянні і ўчынкі якіх выклікаюць агіду, асуджэнне (разм., лаянк.).

**ГА́ДАЎКА**, -і, *ДМ* -даўцы, *мн.* -і, -давак, *ж.* (разм., пагард.). Пра жанчыну, учынкі якой выклікаюць агіду, асуджэнне.

**ГАДА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** Варажыць, даведвацца пра будучае або мінулае па картах ці па якіх-н. прыметах. *Г. на картах.* **2.** Меркаваць, выказваць здагадкі. *Г. пра твой намер. Не думала, не гадала* (зусім не дапускала думкі). ‖ *зак.* **пагада́ць**, -áю, -áеш, -áе (да 1 знач.). ‖ *наз.* **гаданне**, -я, *н.*

**ГА́ДЗІНА**, -ы, *мн.* -ы, -дзін, *ж.* **1.** Тое, што і *гадзюка* (у 1 знач.). **2.** Той, хто выклікае да сябе агіду (пагард.). *Фашысцкая г.*

**ГАДЗІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -дзін, *ж.* **1.** Адзінка вымярэння часу, роўная 60 мінутам. *Прыйсці раней на гадзіну.* **2.** Адзінка часу ў 60 мінут, якую адлічваюць ад паўдня ці ад паўночы. *Г. ночы. Трэцяя г. дня.* **3.** Праме-

**ГАРЛА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., што і без дап.* (разм.). Тое, што і *гарлапаніць.*

**ГАРЛАПА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто гарлапаніць; крыкун.

**ГАРЛАПА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., што і без дап.* (разм.). Моцна крычаць, спяваць. *Г. на ўсю вуліцу.*

**ГАРЛА́СТЫ**, -ая, -ае (разм.). З моцным, крыклівым голасам. *Г. хлопец.* ‖ *наз.* **гарла́стасць**, -і, *ж.*

**ГАРЛАХВА́Т**, -а, *М* -ва́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто груба, нахабна дамагаецца для сябе найбольшай выгады.

**ГАРЛА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Гліняны гладыш з вузкім горлам для малака. ‖ *памянш.* **гарла́чык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **гарла́чны**, -ая, -ае.

**ГАРЛА́ЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* гарлач. **2.** Вадзяная расліна сямейства гарлачыкавых з вялікімі лістамі і жоўтымі ці белымі кветкамі; вадзяная лілія. ‖ *прым.* **гарла́чыкавы**, -ая, -ае.

**ГАРЛЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** Тое, што і дыхальнае *горла.* **2.** Кадык. ‖ *прым.* **гарля́чны**, -ая, -ае.

**ГАРМАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак. і незак., што* (спец.). Пабудаваць (будаваць) акорды згодна з правіламі гармоніі. *Г. народную песню.* ‖ *наз.* **гарманіза́цыя**, -і, *ж.*

**ГАРМАНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; *незак., з чым.* Адпавядаць, супадаць, быць у сугучнасці. *Канец апавядання гарманіруе з агульным настроем. Шалік гарманіруе з гэтай сукенкай.*

**ГАРМАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто іграе на гармоніку. ‖ *прым.* **гармані́сцкі**, -ая, -ае.

**ГАРМАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* гармонія. **2.** Мілагучны, стройны. *Гарманічныя гукі.* **3.** Поўны гармоніі (у 1 знач.), стройнасці. *Гарманічныя рухі. Гарманічныя фарбы.* ‖ *наз.* **гармані́чнасць**, -і, *ж.*

**ГАРМА́ТА**, -ы, *ДМ* -ма́це, *мн.* -ы, -ма́т, *ж.* Агульная назва артылерыйскай зброі (пушка, гаўбіца, марціра і інш.). *Супрацьтанкавая г.* ‖ *прым.* **гарма́тны**, -ая, -ае.

**ГАРМІ́ДАР**, -у, *м.* (разм.). **1.** Гучная бязладная гаворка наперабой; шум, вэрхал. **2.** Беспарадак, неразбярыха.

**ГАРМО́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Біялагічна актыўнае рэчыва, якое выдзяляюць у кроў залозы ўнутранай сакрэцыі. ‖ *прым.* **гармана́льны**, -ая, -ае. *Гарманальныя прэпараты.*

**ГАРМО́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Музычны інструмент, які складаецца з дзвюх дэк з клавіятурай, злучаных паміж сабой расцяжнымі мяхамі. **2.** *у знач. прысл.* **гармо́нікам, у гармо́нік.** Густымі паралельнымі складкамі (пра паперу, скуру і пад.). *Злажыць ліст паперы гармонікам.* ○ **Губны гармонік** — музычны інструмент у форме прадаўгаватай скрыначкі з металічнымі язычкамі і адтулінамі для ўдзімання паветра.

**ГАРМО́НІЯ**, -і, *ж.* **1.** Зладжанасць, узаемная адпаведнасць у спалучэнні чаго-н. *Г. гукаў. Г. святла і ценю. Г. інтарэсаў.* **2.** Раздзел тэорыі музыкі, вучэнне аб правільнай пабудове сугучнасцей у кампазіцыі (спец.). ‖ *прым.* **гармані́чны**, -ая, -ае (у 1 знач.).

**ГАРНАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* горан. **2.** *у знач. наз.* **гарнавы́**, -о́га, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.* Рабочы пры горне. *Г. доменнай печы.*

**ГАРНАЛЫ́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца гарналыжным спортам. ‖ *ж.* **гарналы́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ГАРНАЛЫ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да лыжнага спорту ва ўмовах горнай мясцовасці. *Г. спорт.*

**ГАРНАСТА́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Пушны драпежны звярок сямейства куніцавых з каштоўным белым футрам і чорным кончыкам хваста зімой, а таксама футра гэтага звярка. ‖ *прым.* **гарнаста́евы**, -ая, -ае.

**ГА́РНЕЦ**, га́рца, *мн.* га́рцы, га́рцаў, *м.* Старая мера сыпкіх рэчываў, роўная 3,28 літра, а таксама пасудзіна такой ёмістасці. *Г. жыта.* ‖ *памянш.* **га́рчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **га́рцавы**, -ая, -ае. *Г. збор.*

**ГАРНІЗО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вайсковыя часці, размешчаныя ў якім-н. населеным пункце, крэпасці. ‖ *прым.* **гарнізо́нны**, -ая, -ае. *Гарнізонная служба.*

**ГАРНІ́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Агародніна, крупы, бульба і пад. як дадатак да рыбных і мясных страў. *Г. з макароны.* ‖ *прым.* **гарні́рны**, -ая, -ае.

**ГАРНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на горне.

**ГАРНІТУ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Поўны падбор, камплект прадметаў пэўнага прызначэння. *Спальны г. Г. адзення.* ‖ *прым.* **гарніту́рны**, -ая, -ае.

**ГАРНІТУ́РА**, -ы, *ж.* (спец.). Камплект друкарскіх шрыфтоў аднаго малюнка, але розных памераў.

**ГАРНУ́ЦЦА**, гарну́ся, го́рнешся, го́рнецца; гарні́ся; *незак.* **1.** *да каго-чаго.* Пяшчотна туліцца, лашчыцца. *Г. да мацеры.* **2.** *перан.* Старацца быць бліжэй да каго-н., сімпатызуючы каму-н. або маючы на ўвазе якую-н. выгаду. *Г. да дзяўчыны. Радня да радні горнецца.* **3.** Мець ахвоту да чаго-н. *Г. да працы.*

**ГАРНУ́ЦЬ**, гарну́, го́рнеш, го́рне; гарні́; *незак., каго-што.* **1.** Выцягваць, выграбаць што-н. дробнае, збіраючы ў адно месца. *Г. бульбу з печы.* **2.** *перан.* Набываць надта многа чаго-н. для сябе; прагна хапаць. *Ён горне да сябе ўсё.* **3.** Пяшчотна прыхіляць, туліць да сябе. *Маці гарнула сына да грудзей. Ведаю, куды ты горнеш* (перан.: схіляеш думку, справу). **4.** Прыцягваць, прываблівань (разм.). *Тэатр гарнуў і вабіў моладзь.*

**ГАРНУ́ШАК**, -шка, *мн.* -шкі, -шкаў, *м.* (разм.). Невялічкі гаршчок. ‖ *прым.* **гарну́шкавы**, -ая, -ае.

**ГАРНЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** Тое, што і *горнарабочы.* **2.** Горны інжынер або студэнт горнай навучальнай установы. ‖ *прым.* **гарня́цкі**, -ая, -ае.

**ГАРО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *агарод.* ‖ *прым.* **гаро́дны**, -ая, -ае.

**ГАРО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *агароднік.* ‖ *ж.* **гаро́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **гаро́дніцкі**, -ая, -ае.

**ГАРО́ДНІНА**, -ы, *ж., зб.* Тое, што і *агародніна.* ‖ *прым.* **гаро́днінны**, -ая, -ае.

**ГАРО́ДНІЦТВА**, -а, *н.* Тое, што і *агародніцтва.*

**ГАРО́ДНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *агароднічаць.*

**ГАРО́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *агародчык.* ‖ *прым.* **гаро́дчыкавы**, -ая, -ае.

**ГАРО́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які пастаянна жыве ў горы, нястачы; гарапашнік. ‖ *ж.* **гаро́тніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **гаро́тніцкі**, -ая, -ае.

**ГАРО́ТНЫ**, -ая, -ае. Няшчасны, поўны гора, нястач, бедны. *Г. чалавек. Гаротнае жыццё.* ‖ *наз.* **гаро́тнасць**, -і, *ж.*

**ГАРО́Х**, -у, *М* -у *і* -ро́се, *м.* Расліна сямейства бабовых з насеннем у стручках, а таксама само круглае насенне гэтай расліны. *Нашчыпаць гароху.* ‖ *памянш.-ласк.* **гаро́шак**, -шку, *м. Зялёны г.* ‖ *прым.* **гаро́хавы**, -ая, -ае. ◊ **Гарохавы вянок** — адмова ў каханні. **Пудзіла гарохавае** (разм., неадабр.) — пра смешна ці безгустоўна адзетага чалавека.

**ГАРО́ХАВІННЕ**, -я, *н.* Тое, што і *гарашыны.*

**ГАРО́ХАВІНЫ**, -він. Тое, што і *гарашыны.*

**ГАРО́ХАВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *н.* Поле, на якім рос гарох.

**ГАРО́ШАК**, -шку, *м.* **1.** *гл.* гарох. **2.** Назва некаторых травяністых раслін сямейства бабовых. *Мышыны г. Пахучы г.* **3.** Круглыя кружочкі на тканіне. *Касынка ў г.*

**ГАРО́ШЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -шын, *ж.* Адно зерне гароху. ‖ *памянш.* **гаро́шынка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**ГАРПУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Кідальная зброя ў выглядзе кап'я з зубчастым наканечнікам на доўгім тросе, якая ўжываецца для палявання на буйных марскіх жывёл. ‖ *прым.* **гарпу́нны**, -ая, -ае. *Гарпунная пушка.*

**ГАРПУ́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па кіданні гарпуна. ‖ *прым.* **гарпу́ншчыцкі**, -ая, -ае.

**ГАРСЭ́Т**, -а, *М* -сэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Шырокі пругкі пояс для сцягвання таліі, які носяць пад адзеннем. **2.** Цвёрды і шырокі артапедычны пояс, які выкарыстоўваецца пры захворваннях пазваночніка. *Гіпсавы г.* **3.** Безрукаўка ў традыцыйным касцюме беларускіх жанчын. *Вышываны г.* ‖ *прым.* **гарсэ́тны**, -ая, -ае.

**ГАРСЭ́ТНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Спецыялістка па вырабе гарсэтаў (у 1 знач.). ‖ *прым.* **гарсэ́тніцкі**, -ая, -ае.

**ГАРТ**, -у, *М* -рце, *м.* **1.** Цвёрдасць металу, якая надаецца гартаваннем. *Сталь высокага гарту.* **2.** *перан.* Фізічная або маральная вынослівасць, стойкасць. *Чалавек старога гарту.* **3.** Сплаў свінцу, волава і сурмы для адліўкі друкарскіх шрыфтоў (спец.). ‖ *прым.* **гáртавы**, -ая, -ае (да 3 знач.) *і* **гартóўны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ГАРТАВÁЦЦА**, -тýюся, -тýешся, -тýецца; -тýйся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Рабіцца цвёрдым, пругкім, трывалым у выніку моцнага награвання і хуткага ахаладжэння (пра метал). **2.** *перан.* Рабіцца фізічна або маральна ўстойлівым, здольным пераносіць цяжкасці і неспрыяльныя ўмовы. *Г. ў барацьбе.*

**ГАРТАВÁЦЬ**, -тýю, -тýеш, -тýе; -тýй; -тавáны; *незак., каго-што.* **1.** Надаваць цвёрдасць, пругкасць, трываласць шляхам моцнага награвання і хуткага ахаладжэння. *Г. жалеза.* **2.** *перан.* Рабіць фізічна або маральна ўстойлівым, здольным пераносіць цяжкія і неспрыяльныя ўмовы. *Г. волю.* ‖ *наз.* **гартавáнне**, -я, *н. і* **гартóўка**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **гартавáльны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Гартавальная печ.*

**ГАРТÁННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* гартань. **2.** Пра гукі: раскацісты, гарлавы. *Гартанная мова.* ‖ *наз.* **гартáннасць**, -і, *ж.*

**ГАРТÁНЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Верхняя частка дыхальнага горла. ‖ *прым.* **гартáнны**, -ая, -ае.

**ГАРТÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак., што.* Перагортваць, пераварочваць лісты (кнігі, часопіса і пад.). *Г. газеты.*

**ГАРТЭ́НЗІЯ**, -і, *мн.* -і, -зій, *ж.* Дэкаратыўная травяністая расліна сямейства гартэнзіевых з вялікім шарападобным суквеццем. ‖ *прым.* **гартэ́нзіевы**, -ая, -ае.

**ГÁРУС**, -у, *м.* Кручаная мяккая шарсцяная пража. ‖ *прым.* **гáрусны**, -ая, -ае *і* **гáрусавы**, -ая, -ае.

**ГАРЎЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны гарэць. *Г. газ.* **2.** *у знач. наз.* **гарýчае**, -ага, *н.* Паліва для рухавікоў: бензін, салярка і інш. ‖ *наз.* **гарýчасць**, -і, *ж.*

**ГАРЦАВÁЦЬ**, -цýю, -цýеш, -цýе; -цýй; *незак.* **1.** Па-маладзецку ездзіць верхам. *Г. на кані.* **2.** Бегаць, скакаць (разм.). *Коні гарцавалі на выгане.*

**ГÁРЦАВЫ** *гл.* гарнец.

**ГÁРЧЫК** *гл.* гарнец.

**ГАРЧЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Гаркаваты прысмак. *Яблыкі з гарчынкай.*

**ГАРЧЫ́ЦА**, -ы, *ж.* **1.** Травяністая расліна сямейства капусных з жоўтымі кветкамі і плодам-стручком. **2.** Вострая прыправа, прыгатаваная з насення гэтай расліны. ‖ *прым.* **гарчы́чны**, -ая, -ае. *Г. колер.*

**ГАРЧЫ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -чы́ць; *незак.* Мець горкі прысмак. *У роце гарчыць.*

**ГАРЧЫ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Кусок паперы, тканіны са слоем гарчыцы (выкарыстоўваецца як лекавы сродак, што выклікае прыток крыві). *Паставіць гарчычнікі.*

**ГАРЧЫ́ЧНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Пасудзіна для гарчыцы.

**ГАРЧЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -э́е; *незак.* Станавіцца горкім, набываць гаркаваты прысмак. *Мука гарчэе.* ‖ *зак.* **згарчэ́ць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -э́е.

**ГАРШЧÓК**, -шкá, *мн.* -шкí, -шкóў, *м.* Гліняная пасудзіна са звужаным дном для варкі стравы, для малака, для пакаёвых раслін і пад. *Смачны баршчок, ды малы г.* (прыказка). *Калі гаспадар з гаспадыняю сварацца, дык у гаршку трасца варыцца* (прыказка). ‖ *памянш.* **гаршчóчак** *і* **гаршчэ́чак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* ‖ *прым.* **гаршкóвы**, -ая, -ае.

**ГАРЫЗАНТÁЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Прамая лінія, паралельная плоскасці гарызонту. *Па гарызанталі.* **2.** Лінія, якая злучае на карце пункты мясцовасці, што знаходзяцца на аднолькавай вышыні над узроўнем мора.

**ГАРЫЗАНТÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. Накіраваны паралельна лініі гарызонту; *проціл.* вертыкальны. *Гарызантальная лінія.* ‖ *наз.* **гарызантáльнасць**, -і, *ж.*

**ГАРЫЗÓНТ**, -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Уяўная мяжа неба і зямной ці воднай паверхні, а таксама прастора неба над гэтай мяжой. *Ні воблачка на гарызонце.* **2.** Уся бачная вакол назіральніка прастора, далягляд. *З самалёта адкрыўся шырокі г.* **3.** *перан.* Круг ведаў, інтарэсаў, ідэй. *Студэнт з шырокім гарызонтам. Г. паэта.* **4.** *перан.* Круг дзеянняў, магчымасцей. *Перад моладдзю адкрыты шырокія гарызонты.* **5.** Узровень вады ў рацэ ці вадаёме (спец.). *Г. вады ў рацэ.* **6.** Пласт адкладанняў горных парод, які вылучаецца па якой-н. прыкмеце (спец.). *Г. вапняку.* ◊ **Знікнуць з гарызонту** — перастаць з'яўляцца дзе-н., у якой-н. кампаніі.

**ГАРЫ́ЛА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́л, *ж.* Буйная чалавекападобная малпа з масіўным целаскладам і цёмнай поўсцю, якая водзіцца ў Цэнтральнай Афрыцы.

**ГАРЫ́СТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты гарамі; горны. *Гарыстая мясцовасць.* ‖ *наз.* **гары́стасць**, -і, *ж.*

**ГАРЫХВÓСТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Пеўчая птушка сямейства драздовых з рыжым хвастом.

**ГАРЫЦВÉТ**, -у, *М* -вéце, *м.* Травяністая лекавая расліна сямейства казяльцовых з яркімі жоўтымі і чырвонымі кветкамі.

**ГАРЫ́ШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ы́шч *і* -аў, *н.* Тое, што і *гара* (у 4 знач.).

**ГАРЭ́ЗА**, -ы, *Д* -у, *Т* -ам, *М* -е, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, гарэ́з. Свавольнік, дуронік, непаседа.

**ГАРЭ́ЗАВАЦЬ**, -зую, -зуеш, -зуе; -зуй; *незак.* Сваволіць, дурэць.

**ГАРЭ́ЗЛІВЫ**, -ая, -ае. Свавольны, непаседлівы. *Г. хлапчук.* ‖ *наз.* **гарэ́злівасць**, -і, *ж.*

**ГАРЭ́ЗНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *гарэза.* ‖ *ж.* **гарэ́зніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ГАРЭ́ЗНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *гарэзаваць.*

**ГАРЭ́ЛКА**[1], -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Прыстасаванне для спальвання гаручай вадкасці, газу. *Пліта на чатыры гарэлкі.* ‖ *прым.* **гарэ́лачны**, -ая, -ае.

**ГАРЭ́ЛКА**[2], -і, *ДМ* -лцы, *ж.* Моцны алкагольны напітак. ○ **Царская гарэлка** — сумесь азотнай кіслаты з салянай. ‖ *ласк.* **гарэ́лачка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* ‖ *прым.* **гарэ́лачны**, -ая, -ае.

**ГАРЭ́ЛКІ**, -лак. Народная гульня, удзельнікі якой стаяць парамі, а той, хто «гарыць», стаіць наперадзе і па сігнале ловіць аднаго з першай пары, якая разбягаецца ў розныя бакі.

**ГАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Абпалены, папсаваны агнём, але не да канца спалены. *Г. блін. Запахла гарэлым* (наз.).

**ГАРЭЛЬÉФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Скульптурны твор, у якім фігура выступае над плоскасцю больш чым на палавіну свайго аб'ёму. ‖ *прым.* **гарэльéфны**, -ая, -ае.

**ГАРЭ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Жаночая палавіна дома ў мусульман. **2.** *зб.* Жонкі і наложніцы мусульманіна. ‖ *прым.* **гарэ́мны**, -ая, -ае.

**ГАРЭ́НІЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ніць; *незак.* (разм.). Мець гаркаваты прысмак. *Мука г.*

**ГАРЭ́ЦЬ**, -рý, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыцé, -рáць; -ры́; *незак.* **1.** Паддавацца дзеянню агню, знішчацца агнём. *Дровы гараць.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Дзейнічаць, быць у спраўнасці (пра тое, што дае полымя, святло). *Пліта гарыць.* **3.** Траціць усё набытае з прычыны пажару, аказвацца пагарэльцам. *Нашы родзічы два разы гарэлі.* **4.** Быць у ліхаманкавым стане. *Дзіця ўсю ноч гарэла.* **5.** Чырванець ад прыліву крыві. *Г. ад сораму. Вушы гараць.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ззяць, блішчаць, выдзяляцца яркім колерам. *На сонцы гарэлі гронкі рабіны. Вочы гараць ад крыўды.* **7.** *перан., чым.* Зазнаваць якое-н. моцнае пачуццё. *Г. нянавісцю.* **8.** *перан.* Поўнасцю аддавацца рабоце, ідэі і пад. *Хто сам на працы гарыць, той і людзям свеціць* (прыказка). **9.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Псавацца, станавіцца непрыгодным, прэць. *Сена гарыць у копах. Пасевы гараць.* **10.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Хутка зношвацца, рвацца (пра адзенне, абутак). *На дзетках хутка гарыць адзежа.* **11.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Быць пад пагрозай зрыву па прычыне спазнення, упушчэння тэрмінаў. *План гарыць. Пуцёўка гарыць.* **12.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Цвісці (пра агуркі, гарбузы і пад.). *Агуркі пачалі г.* ◊ **Вока (зуб) гарыць** *на што* (разм.) — вельмі хочацца мець што-н. **Гары яно гарам; хай яно гарам гарыць** (разм.) — выказванне раздражнення, абурэння чым-н. **Гарыць душа (сэрца)** *у каго, чыя (чыё)* (разм.) — хто-н. вельмі ўсхваляваны, узбуджаны. **Гарыць зямля**

**пад нагамі** *у каго* — пра небяспечнае становішча для каго-н., у сувязі з чым прыходзіцца ўцякаць. **На злодзеі шапка гарыць** (разм.) — гавораць пра таго, хто міжвольна сам выдае сябе ў тым, што больш за ўсё імкнецца ўтаіць. **Не гарыць** (разм.) — няма патрэбы ў спешцы. **Работа (усё) гарыць у руках** *у каго* (разм., адабр.) — работа ідзе добра, хутка. **Скура гарыць** *на кім* (разм., неадабр.) — пра залішнне рухавага, неспакойнага чалавека. **Як мокрае гарыць** (разм., неадабр.) — вельмі марудна. ‖ *зак.* **згарэ́ць**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; -ры́ (да 1, 3, 8 і 9 знач.). ‖ *наз.* **гарэ́нне**, -я, *н.* (да 1, 2, 6, 8, 9 і 12 знач.).

**ГАСІ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Назва розных прыстасаванняў для гашэння агню, святла і пад. **2.** Прыстасаванне для аслаблення або ліквідацыі дзеяння чаго-н. (спец.). ‖ *прым.* **гасі́льны**, -ая, -ае.

**ГАСІ́ЦЬ**, гашу́, га́сіш, га́сіць; *незак., што.* **1.** Спыняць гарэнне; тушыць. *Г. свечку.* **2.** *перан.* Перашкаджаць развіццю чаго-н.; заглушаць (жаданні, пачуцці). *Г. ініцыятыву.* **3.** Змяншаць ці спыняць дзеянне чаго-н. (спец.). *Г. хістанні. Г. скорасць.* **4.** Рабіць што-н. несапраўдным, непрыгодным для далейшага ўжывання. *Г. доўг. Г. паштовыя маркі.* **5.** Моцна ўдараць па чым-н. (разм.). *Г. абухом па дзвярах.* ○ **Гасіць вапну** — дабаўляць вады ў вапну, каб атрымаць з яе белы парашок — будаўнічую гашаную вапну. ‖ *зак.* **загасі́ць**, -гашу́, -га́сіш, -га́сіць; -га́шаны (да 1 знач.) *і* **пагасі́ць**, -гашу́, -га́сіш, -га́сіць; -га́шаны. ‖ *наз.* **гашэ́нне**, -я, *н.*

**ГА́СНУЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не; *незак.* **1.** Пераставаць гарэць, свяціць; тухнуць. *Свечка гасне.* **2.** *перан.* Слабець, чахнуць, знікаць. *Чалавек гасне ўвачавідкі. Надзеі г.* ‖ *зак.* **зага́снуць**, -ну, -неш, -не; зага́с, -сла, -ні; **пага́снуць**, -ну, -неш, -не; пага́с, -сла; -ні *і* **зга́снуць**, -ну, -неш, -не; згас, -сла; -ні.

**ГАСПАДА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Уласнік, уладальнік каго-, чаго-н. *Г. кватэры.* **2.** (звычайна з азначэннем). Той, хто вядзе гаспадарку, займаецца гаспадарчымі справамі. *Руплівы г.* **3.** *перан., чаго.* Паўнаўладны распарадчык. *Народ — г. сваёй краіны. Г. свайго лёсу.* **4.** Галава дома, сям'і. *Г. за гарэлачку, а гаспадыня за талерачку* (прыказка). *Г. — галава ў хаце* (прыказка). ◊ **Гаспадар свайго слова** (адабр.) — пра чалавека, у якога слова не разыходзіцца са справай. ‖ *ж.* **гаспады́ня**, -і, *мн.* -і, -ды́нь; *ласк.* **гаспады́нька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек. ‖ *прым.* **гаспада́рскі**, -ая, -ае.

**ГАСПАДА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Спосаб вытворчасці, сукупнасць вытворчых адносін таго ці іншага грамадскага ўкладу. *Натуральная г.* **2.** Вытворчасць, эканоміка. *Народная г. краіны. Сельская г.* **3.** Абсталяванне якой-н. вытворчасці. *Г. трактарнага завода.* **4.** Рэчы, прадметы, якія патрэбны ў быце. *Абзавесціся гаспадаркай.* **5.** Вытворчая адзінка, пераважна сельскагаспадарчая. *Сялянскія гаспадаркі. Кіраваць гаспадаркай.* **6.** Заняткі па ўпарадкаванні быту, доглядзе жылля і пад. *Займацца гаспадаркай. Хатняя г.*

**ГАСПАДА́РЛІВЫ**, -ая, -ае. Эканомны, руплівы, клапатлівы ў вядзенні гаспадаркі (пра чалавека). *Гаспадарлівая жанчына. Г.* (наз.) *ні сцюжы, ні спёкі не баіцца* (прыказка). ‖ *наз.* **гаспада́рлівасць**, -і, *ж.*

**ГАСПАДА́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Кіраўнік, асоба, якая кіруе гаспадарчымі справамі ўстановы, прадпрыемства і пад. *Вопытны г.* ‖ *прым.* **гаспада́рніцкі**, -ая, -ае.

**ГАСПАДА́РНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *гаспадарыць.* ‖ *наз.* **гаспада́рнічанне**, -я, *н.*

**ГАСПАДА́РНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *гаспадарлівы.* ‖ *наз.* **гаспада́рнасць**, -і, *ж.*

**ГАСПАДА́РСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* гаспадар. **2.** Дбайны, руплівы. *Гаспадарскія адносіны да справы.*

**ГАСПАДА́РЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да вядзення гаспадаркі, да эканамічнага, вытворчага боку справы. *Гаспадарчыя арганізацыі. Гаспадарчыя поспехі.* **2.** Які мае адносіны да вядзення гаспадаркі, патрэбны для яе вядзення. *Гаспадарчыя турботы. Г. інвентар. Гаспадарчыя тавары.* **3.** Даходны, рацыянальны. *Г. падыход да выкарыстання прыродных багаццяў.* **4.** Уласцівы гаспадару (у 2 знач.). *Гаспадарчае вока.*

**ГАСПАДА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* **1.** Весці гаспадарку (у 6 знач.). *Г. дома.* **2.** Наводзіць дзе-н. парадкі па-свойму (неадабр.). *Г. у чужым агародзе.* ‖ *наз.* **гаспада́ранне**, -я, *н.*

**ГАСПАДЫ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -ды́нь, *ж.* **1.** *гл.* гаспадар. **2.** Жонка (разм.). ○ **Хатняя гаспадыня** — жанчына, якая не занята ў грамадскай вытворчасці, а вядзе хатнюю гаспадарку сваёй сям'і.

**ГАСТАРБА́ЙТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочы-эмігрант. *Падацца ў гастарбайтары.*

**ГАСТРАЛЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Артыст на гастролях. **2.** *перан.* Пра таго, хто пастаянна мяняе месца работы, пра выпадковага работніка (разм., неадабр.). ‖ *ж.* **гастралёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **гастралёрскі**, -ая, -ае.

**ГАСТРАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е *і* **ГАСТРАЛІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* **1.** Прыязджаць на гастролі, выступаць на гастролях. **2.** *перан.* Быць гастралёрам (у 2 знач.; разм., неадабр.).

**ГАСТРАНО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Знаток і любіцель смачнай ежы; гурман. **2.** Магазін, які гандлюе харчовымі таварамі, прадуктамі. *Купіць малако ў гастраноме.*

**ГАСТРАНО́МІЯ**, -і, *ж.* Харчовыя прадукты, пераважна закусачныя. ‖ *прым.* **гастранамі́чны**, -ая, -ае. *Г. магазін.*

**ГАСТРО́ЛІ**, -ей *і* -яў, *адз.* гастро́ль, -і, *ж.* Выступленні, спектаклі акцёраў па-за месцам яго сталай дзейнасці — у іншым раёне, горадзе, краіне. *Г. тэатра лялек.* ‖ *прым.* **гастро́льны**, -ая, -ае.

**ГАСТРЫ́Т**, -у, *М* -ры́це, *мн.* -ы, -аў *м.* Запаленне слізістай абалонкі страўніка. ‖ *прым.* **гастры́тны**, -ая, -ае *і* **гастры́чны**, -ая, -ае.

**ГАСУДА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Кіраўнік, галава манархічнай дзяржавы; цар, імператар. ‖ *ж.* **гасуда́рыня**, -і, *мн.* -і, -рынь. ‖ *прым.* **гасуда́рскі**, -ая, -ае.

**ГАСЦІ́НА**, -ы, *ж.* (нар.-паэт.). **1.** *зб.* Госці. *Да нас сабралася вялікая г.* **2.** Прыём гасцей, частаванне. *Для гасціны ў мяне ёсць і мёд, і цукеркі.*

**ГАСЦІ́НАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Пакой для прыёму гасцей, а таксама камплект мэблі для такога пакоя.

**ГАСЦІ́НЕЦ**[1], -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Падарунак (звычайна які-н. ласунак). *Прынесці дзецям г.* ‖ *прым.* **гасці́нцавы**, -ая, -ае.

**ГАСЦІ́НЕЦ**[2], -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Вялікая бойкая дарога; тракт. *Даўгінаўскі г.* ‖ *прым.* **гасці́нцавы**, -ая, -ае.

**ГАСЦІ́НІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Дом з мэбляванымі пакоямі для часовага пражывання прыезджых. ‖ *прым.* **гасці́нічны**, -ая, -ае.

**ГАСЦІ́ННЫ**, -ая, -ае. Які любіць прымаць і частаваць гасцей. *Г. чалавек.* ‖ *наз.* **гасці́ннасць**, -і, *ж.*

**ГАСЦІ́ЦЬ**, гашчу́, го́сціш, го́сціць; *незак.* Жыць дзе-н. у якасці госця. *Г. у родных.*

**ГАСЦЯВА́ЦЬ**, -цюю, -цюеш, -цюе; -цюй; *незак.* Тое, што і *гасціць.* ‖ *наз.* **гасцява́нне**, -я, *н.*

**ГАСЦЯВЫ́** *гл.* госць.

**ГАТАВА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -льняў, *ж.* Футарал, скрынка з наборам чарцёжных інструментаў.

**ГАТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Варыцца (пра ежу). *На пліце гатуецца крупнік. У чайніку гатуецца вада* (кіпіць). **2.** *да чаго* або *з інф.* Рыхтавацца да чаго-н., да якой-н. дзейнасці (разм.). *Г. да вяселля.* ‖ *зак.* **згатава́цца**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ту́ецца (да 1 знач.).

**ГАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; гату́й; -тава́ны; *незак., што.* **1.** Варыць ежу. *Г. вячэру. Г. малако* (кіпяціць). **2.** Прыводзіць у прыгодны для карыстання стан. *Г. цёплае адзенне да зімы. Г. насенне да пасеву.* ‖ *зак.* **згатава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **гатава́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ГАТО́ВЫ**, -ая, -ае; гато́ў, гато́ва. **1.** *да чаго* і *з інф.* Які зрабіў усе неабходныя прыгатаванні. *Г. да ад'езду.* **2.** *на што* або *з інф.* Які схільны зрабіць што-н., з якім можа што-н. адбыцца. *Г. памагаць садзіць бульбу. Бульба гатова зацвісці.* **3.** Канчаткова зроблены, годны для ўжывання, выкарыстання. *Абед г. Гатовыя дэталі. На ўсім гатовым* (наз.). **4.** толькі *кар. ф.*, *у знач. вык.* Выражае канчатковы вынік

якога-н. дзеяння або стану і ўжыв. ў знач.: а) памёр, сканаў; б) зусім п'яны (разм.). *Ужо гатоў!*

**ГАТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *ж.* (разм.). Наяўныя грошы. *Заплаціў пяць тысяч гатоўкаю.*

**ГАТО́ЎНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Стан, пры якім усё зроблена, падрыхтавана да чаго-н. *Баявая г.* **2.** Згода, жаданне зрабіць што-н. *Выказаць г. выканаць заданне.*

**ГАТУ́НАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Разрад, катэгорыя чаго-н. (першапачаткова тавару) па якасці, расцэнцы і пад.; сорт. *Мука першага гатунку.* ‖ *прым.* **гатунко́вы**, -ая, -ае. *Гатунковае насенне.*

**ГАТУНКО́ВАСЦЬ**, -і, *ж.* Прыналежнасць да таго ці іншага гатунку.

**ГАТЫ́ЧНЫ** *гл.* готыка.

**ГАТЭНТО́ТЫ**, -аў, *адз.* -то́т, -а, *м.* Народнасць, якая жыве на поўдні Афрыкі (сучасная Намібія) і размаўляе на мове нама. ‖ *ж.* **гатэнто́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **гатэнто́цкі**, -ая, -ае.

**ГА́ЎБІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -біц, *ж.* Артылерыйская гармата для навеснай стральбы па закрытых цэлях. *Лёгкая г.* ‖ *прым.* **га́ўбічны**, -ая, -ае.

**ГА́ЎКАЛА**, -ы, *Д* -у, *Т* -ам, *М* -е, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, га́ўкал (разм.). **1.** Пра сабаку, які дакучае брэхам. **2.** Пра сварлівага чалавека (пагард.).

**ГА́ЎКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Брахаць (пра сабаку). **2.** *перан.* Паклёпнічаць, нагаворваць (пра зламысных людзей; разм.). ‖ *аднакр.* **га́ўкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **га́ўканне**, -я, *н.*

**ГАЎПТВА́ХТА**, -ы, *ДМ* -хце, *ж.* **1.** Памяшканне для трымання пад арыштам ваеннаслужачых. *Пасадзіць на гаўптвахту.* **2.** Галоўны каравул у крэпасці, горадзе, а таксама каравульнае памяшканне з пляцоўкай для вывядзення каравула (уст.). ‖ *прым.* **гаўптва́хтавы**, -ая, -ае.

**ГАФРЫРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што.* Зрабіць (рабіць) рады паралельных складак на чым-н. (метале, тканіне, паперы і пад.). *Г. каўнер.* ‖ *наз.* **гафрырава́нне**, -я, *н.* і **гафрыро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **гафрырава́льны**, -ая, -ае.

**ГАФРЫРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* гафрыраваць. **2.** Рад паралельных хвалепадобных складак на чым-н. *Сукенка з гафрыроўкай.*

**ГАФРЭ́**. **1.** *нескл., н.* Складкі на тканіне, цвёрда запрасаваныя і закладзеныя з выгінам. **2.** *прым. нязм.* Пра выраб з такімі складкамі. *Спадніца г.*

**ГАФТ**, -у, *М* -фце, *м.* Від ажурнай вышыўкі.

**ГАФТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што.* Рабіць узор на чым-н. спецыяльным відам ажурнай вышыўкі. ‖ *зак.* **вы́гафтаваць**, -тую, -туеш, -туе; -туй; -таваны. ‖ *наз.* **гафтава́нне**, -я, *н.*

**ГА́ФТАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Пятля з нітак у вопратцы для апліка.

**ГА́ХАЦЬ** *і* **ГА́ХКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). З сілай удараць, суправаджаючы ўдар выкрыкам слова «гах!». ‖ *аднакр.* **га́хнуць**, -ну, -неш, -не; -ні.

**ГА́ХНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* (разм.). Моцна ўдарыцца, стукнуцца аб што-н. *Г. аб дзверы.*

**ГАЦІ́ЦЬ**, гачу́, га́ціш, га́ціць; *незак., што.* Рабіць гаць, пракладваць дарогу цераз балота ці гразкае месца. *Г. балота.* ‖ *зак.* **загаці́ць**, -гачу́, -га́ціш, -га́ціць; -га́чаны.

**ГАЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Насціл з бярвення, галля, ламачча для праезду цераз балота ці гразкае месца. **2.** Запруда для павышэння ўзроўню вады ў рацэ. ‖ *прым.* **га́цевы**, -ая, -ае.

**ГА́ШАНЫ**, -ая, -ае. Падвергнуты гашэнню. *Гашаныя маркі. Гашаная вапна.*

**ГАШЫ́Ш**, -у, *м.* Наркатычны сродак з індыйскіх канапель. *Курыць г.* ‖ *прым.* **гашы́шны**, -ая, -ае.

**ГАШЭ́ННЕ** *гл.* гасіць.

**ГАШЭ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Прыстасаванне ў агнястрэльнай зброі для спуску курка. *Націснуць на гашэтку.* ‖ *прым.* **гашэ́тачны**, -ая, -ае.

**ГАЮ́ЧЫ**, -ая, -ае. Карысны для здароўя, здольны вылечваць хваробы. *Гаючая вада.* ‖ *наз.* **гаю́часць**, -і, *ж.*

**ГВАЗДАВЫ́** *гл.* гвозд.

**ГВАЗДАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., аднакр.* (разм.). Моцна ўдарыць чым-н. *Г. кулаком.*

**ГВАЗДЗІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Травяністая шматгадовая расліна сямейства гваздзіковых з яркімі кветкамі і вострым пахам. ‖ *прым.* **гваздзіко́вы**, -ая, -ае. *Г. пах.*

**ГВАЗДЗІ́КА**, -і, *ДМ* -дзі́цы, *ж., зб.* Высушаныя бутоны гваздзіковага дрэва, якія выкарыстоўваюцца як прыправа. ‖ *прым.* **гваздзіко́вы**, -ая, -ае. *Г. алей.*

**ГВАЗДЗІКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* гваздзік. **2.** *у знач. наз.* **гваздзіко́выя**, -ых. Сямейства двухдольных раслін, да якіх адносіцца гваздзік, кукаль і інш.

**ГВАЛТ**, -у, *М* -лце, *м.* **1.** Прымяненне фізічнай сілы ў адносінах да каго-н. *Партызаны помсцілі немцам за г. і здзекі.* **2.** Прымусовае ўздзеянне на каго-, што-н. *Чыніць г.* **3.** *у знач. прысл.* **гва́лтам**. Супраць волі, жадання, сілай. *Гвалтам пасадзіць у машыну.* **4.** Крык, лямант. *Кожны вечар у хаце стаяў г.* **5.** *у знач. выкл.* Кліч аб ратунку ў выпадку небяспекі (разм.). *Г., ратуйце!*

**ГВАЛТАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* гвалтаваць. **2.** Тое, што і *гвалт* (у 1 і 2 знач.).

**ГВАЛТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак., каго-што.* **1.** Чыніць гвалт (у 1 і 2 знач.). *Г. чыю-н. волю.* **2.** Сілай прымушаць да палавой сувязі. ‖ *зак.* **згвалтава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *наз.* **гвалтава́нне**, -я, *н.*

**ГВАЛТАЎНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто гвалтуе, гвалціць.

**ГВАЛТО́ЎНІЦКІ**, -ая, -ае. Звязаны з дзейнасцю гвалтаўніка. *Гвалтоўніцкія метады.*

**ГВАЛТО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які суправаджаецца гвалтам, прымусам. *Гвалтоўная смерць.* **2.** Раптоўны. *Г. агонь.* **3.** Бурны, парывісты. *Г. вецер.* ‖ *наз.* **гвалто́ўнасць**, -і, *ж.*

**ГВА́ЛЦІЦЬ**, -лчу, -лціш, -лціць; *незак., каго-што.* Тое, што і *гвалтаваць.* ‖ *зак.* **згва́лціць**, -лчу, -лціш, -лціць; -лчаны.

**ГВАРДЗЕ́ЕЦ**, -дзе́йца, *мн.* -дзе́йцы, -дзе́йцаў, *м.* Ваенны, які служыць у гвардыі. ‖ *прым.* **гвардзе́йскі**, -ая, -ае.

**ГВА́РДЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Адборныя, лепшыя войскі. **2.** *перан.* Выпрабаваная частка якога-н. калектыву, сацыяльнай групы і пад. *Рабочая г.* ○ **Белая гвардыя** — агульная назва контррэвалюцыйных войск у час Грамадзянскай вайны ў Расіі ў 1918—1920 гг. **Чырвоная гвардыя** — баявыя атрады рабочых, якія з'явіліся для барацьбы з контррэвалюцыяй і дзейнічалі ў 1917—1918 гг. ‖ *прым.* **гвардзе́йскі**, -ая, -ае.

**ГВОЗД**, гвазда́, *М* -дзе́, *мн.* гвазды́, гвaздо́ў, *м.* Металічны або драўляны завостраны шпень для забівання ў што-н., для змацавання чаго-н. з чым-н. *Прыбіць дошку гваздамі.* ‖ *прым.* **гваздавы́**, -а́я, -о́е.

**ГЕА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які звязаны з зямлёй, напр.: *геасфера, геабатаніка, геафізіка, геахімія.*

**ГЕАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Комплекс навук, якія вывучаюць паверхню Зямлі з яе прыроднымі ўмовамі, насельніцтва, эканамічныя рэсурсы і матэрыяльную вытворчасць. *Фізічная г. Эканамічная г.* ‖ *прым.* **геаграфі́чны**, -ая, -ае.

**ГЕАДЭЗІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне геадэзіі. ‖ *ж.* **геадэзі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ГЕАДЭ́ЗІЯ**, -і, *ж.* Навука аб формах і памерах Зямлі, вымярэнні і паказе яе паверхні на планах і картах. ‖ *прым.* **геадэзі́чны**, -ая, -ае.

**ГЕАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб гісторыі развіцця, складзе і будове зямной кары, аб размяшчэнні ў ёй карысных выкапняў. ‖ *прым.* **геалагі́чны**, -ая, -ае.

**ГЕАМЕ́ТРЫЯ**, -і, *ж.* Раздзел матэматыкі, які вывучае прасторавыя адносіны і формы. ‖ *прым.* **геаметры́чны**, -ая, -ае.

**ГЕАПАЛІ́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Палітычная канцэпцыя, згодна з якой знешняя палітыка дзяржавы вызначаецца пераважна геаграфічнымі фактарамі, становішчам краіны, а таксама сама́ знешняя палітыка, што абапіраецца на такую канцэпцыю. ‖ *прым.* **геапаліты́чны**, -ая, -ае.

**ГЕГЕМАНІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Палітыка, заснаваная на імкненні да панавання над усім светам, над іншымі краінамі і народамі. ‖ *прым.* **гегемані́сцкі**, -ая, -ае. *Г. курс.*

**ГЕГЕМО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто з'яўляецца галоўным над кім-, чым-н., каму належыць кіруючая роля ў чым-н.

**ГЕГЕМО́НІЯ**, -і, *ж.* Першынство, перавага ў кіраўніцтве; кіруючая роля.

**ГЕЕ́НА**, -ы, *ж.* У рэлігіі: месца вечных мук грэшнікаў; пекла. ‖ *прым.* **гее́нскі**, -ая, -ае.

**ГЕ́ЙЗЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Крыніца вулканічнага паходжання, якая перыядычна выкідвае фантаны гарачай вады. ‖ *прым.* **ге́йзерны**, -ая, -ае.

**ГЕ́ЙША**, -ы, *мн.* -ы, гейш, *ж.* У Японіі: жанчына, навучаная музыцы, танцам, уменню весці свецкую размову, якую запрашаюць на прыёмы, банкеты і пад.

**ГЕКЗА́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У антычным метрычным вершаскладанні — шасцістопны дактыль з апошняй усечанай стапой[1]. ‖ *прым.* **гекзаметры́чны**, -ая, -ае.

**ГЕКТА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. сто, напр.: *гектават, гектапаскаль.*

**ГЕКТАГРАФАВА́ЦЬ**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны; *незак., што.* Друкаваць на гектографе. ‖ *наз.* **гектаграфава́нне**, -я, *н.*

**ГЕКТА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Метрычная мера зямельнай плошчы, роўная 10 000 $м^2$. ‖ *прым.* **гекта́рны**, -ая, -ае.

**ГЕКТО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). Прасцейшы капіравальны прыбор для атрымання адбіткаў з рукапіснага або машынапіснага тэксту. ‖ *прым.* **гектаграфі́чны**, -ая, -ае.

**ГЕЛІЁ...** (а таксама **гелія...**). Першая састаўная частка складаных слоў, якая паказвае на адносіны да Сонца, сонечнага выпрамянення, напр.: *геліёграф, геліёметр.*

**ГЕ́ЛІЙ**, -ю, *м.* Хімічны элемент, інертны газ — самы лёгкі пасля вадароду. ‖ *прым.* **ге́ліевы**, -ая, -ае.

**ГЕЛІЯ...** (*гл.* **геліё...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «геліё...», калі націск падае на другую частку, напр.: *геліяграфія, геліяскоп, геліятэрапія, геліяўстаноўка.*

**ГЕЛІЯТРО́П**, -у, *м.* **1.** Садовая травяністая расліна сямейства бурачнікавых з ліловымі ці белымі пахучымі кветкамі. **2.** Мінерал цёмна-зялёнага колеру з чырвонымі плямамі і палоскамі. ‖ *прым.* **геліятро́пны**, -ая, -ае.

**ГЕЛІЯТЭ́ХНІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* Галіна навукі і тэхнікі, тэорыя і практыка выкарыстання сонечнай энергіі для тэхнічных мэт. ‖ *прым.* **геліятэхні́чны**, -ая, -ае.

**ГЕМАГЛАБІ́Н**, -у, *м.* Бялковае рэчыва ў складзе крыві, якое надае ёй чырвоны колер і пераносіць кісларод ад органаў дыхання да тканак арганізма. ‖ *прым.* **гемаглабі́навы**, -ая, -ае.

**ГЕМАРО́Й**, -ю, *м.* Хвароба, звязаная з застоем крыві ў ніжняй частцы прамой кішкі і расшырэннем вен у выглядзе вузлоў, якія часта выклікаюць крывацёк. ‖ *прым.* **гемараіда́льны**, -ая, -ае *і* **гемаро́йны**, -ая, -ае. *Гемараідальныя шышкі. Гемаройная кроў.*

**ГЕН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Структурная і функцыянальная адзінка спадчыннасці, якая кантралюе развіццё пэўнай прыкметы ці ўласцівасці. ‖ *прым.* **ге́нны**, -ая, -ае. *Генная інжынерыя* (канструяванне новых спалучэнняў генаў).

**ГЕН...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. генеральны, напр.: *генплан, генштаб, генпадрадчык.*

**ГЕНА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да генаў, напр.: *генасістэматыка, генатып, генафонд.*

**ГЕНАЦЫ́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Палітыка знішчэння асобных груп насельніцтва або цэлых народаў па расавых, нацыянальных або рэлігійных матывах. ‖ *прым.* **генацы́дны**, -ая, -ае.

**ГЕ́НДАР**, -а, *м.* Сацыяльныя функцыі, звязаныя з адрозненнямі па полу. ‖ *прым.* **ге́ндарны**, -ая, -ае. *Г. стэрэатып.*

**ГЕНЕАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Раздзел гістарычнай навукі, які вывучае паходжанне і сувязі асобных родаў[1] (у 2 знач.). **2.** Гісторыя роду[1] (у 2 знач.); радаслоўе. ‖ *прым.* **генеалагі́чны**, -ая, -ае.

**ГЕНЕ́ЗІС**, -у, *м.* Паходжанне, гісторыя ўзнікнення і развіцця чаго-н. *Г. славянскіх моў.* ‖ *прым.* **генеты́чны**, -ая, -ае.

**ГЕНЕРА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Воінскае званне вышэйшага каманднага складу ўзброеных сіл, а таксама асоба, якая мае гэта званне. *Г.-маёр. Г.-лейтэнант. Г.-палкоўнік. Г. арміі.* ‖ *прым.* **генера́льскі**, -ая, -ае. *Генеральскія пагоны.*

**ГЕНЕРА́Л-ГУБЕРНА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У царскай Расіі: чыноўнік мясцовай адміністрацыі з вышэйшай ваенна-адміністрацыйнай уладай, які стаяў на чале генерал-губернатарства. **2.** У краінах Садружнасці нацый: прадстаўнік англійскага манарха, які лічыцца кіраўніком дзяржавы. ‖ *прым.* **генера́л-губерна́тарскі**, -ая, -ае.

**ГЕНЕРАЛІ́СІМУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Самае высокае воінскае званне ў некаторых краінах, а таксама асоба, якая мае гэта званне. *Г. Сувораў.*

**ГЕНЕРАЛІТЭ́Т**, -у, *М* -тэ́це, *м., зб.* Генералы, вышэйшы камандны склад арміі.

**ГЕНЕРА́ЛІХА**, -і, *ДМ* -лісе, *мн.* -і, -ліх, *ж.* (разм.). Жонка генерала.

**ГЕНЕРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Галоўны, асноўны, вядучы. *Генеральная лінія развіцця.* **2.** Усеагульны, грунтоўны, карэнны. *Г. план перабудовы горада.*

**ГЕНЕРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыстасаванне для ператварэння аднаго віду энергіі ў другі. *Г. пастаяннага току. Г. пераменнага току.* **2.** Прыстасаванне, апарат ці машына, якія вырабляюць якія-н. прадукты. *Г. вадароду. Г. ідэй* (перан.). ‖ *прым.* **генера́тарны**, -ая, -ае.

**ГЕНЕ́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне генетыкі.

**ГЕНЕ́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Навука, якая вывучае законы і механізмы спадчыннасці і зменлівасці. ‖ *прым.* **генеты́чны**, -ая, -ае. *Г. код.*

**ГЕ́НІЙ**, -я *і* -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** -ю. Самая высокая ступень творчай адоранасці, таленавітасці. *Музычны г. Чайкоўскага.* **2.** -я. Чалавек, надзелены такой адоранасцю. *Творчасць геніяў.* **3.** -я. У старажытнарымскай міфалогіі: дух — заступнік чалавека, які кіруе яго жыццём і прадвызначае характар. ◊ **Добры геній** — той, хто памагае каму-н., аказвае на каго-н. дабратворны ўплыў. **Злы геній** — той, хто аказвае на каго-н. дрэнны ўплыў.

**ГЕНІЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Надзелены геніем (у 1 знач.). *Г. пісьменнік.* **2.** Уласцівы генію, творча дасканалы. *Геніяльная сімфонія Шастаковіча.* ‖ *наз.* **генія́льнасць**, -і, *ж.*

**ГЕНО́М**, -у, *м.* Сукупнасць генаў, якія змяшчаюцца ў адзінарным наборы храмасом дадзенага арганізма. *Мутацыя геному.* ‖ *прым.* **гено́мны**, -ая, -ае.

**ГЕНШТА́Б**, -а, *мн.* генштабы́, -о́ў, *м.* Генеральны штаб. ‖ *прым.* **геншта́баўскі**, -ая, -ае.

**ГЕО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне геаграфіі.

**ГЕО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне геалогіі.

**ГЕОЛАГАРАЗВЕ́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* Геалагічныя пошукі карысных выкапняў. ‖ *прым.* **геолагаразве́дачны**, -ая, -ае.

**ГЕОЛАГАРАЗВЕ́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца геолагаразведкай. ‖ *ж.* **геолагаразве́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ГЕО́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне геаметрыі.

**ГЕПА́РД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйная драпежная млекакормячая жывёліна сямейства кашэчых. ‖ *прым.* **гепа́рдавы**, -ая, -ае.

**ГЕПАТЫ́Т**, -у, *М* -ты́це, *м.* Хвароба печані запаленчага характару. ‖ *прым.* **гепаты́тны**, -ая, -ае.

**ГЕРАІ́ЗМ**, -у, *м.* Адвага, рашучасць і самаахвяраванне ў крытычных абставінах. *Г. абаронцаў Радзімы. Працоўны г.*

**ГЕРАІ́Н**, -у, *м.* Моцнадзейны наркотык, які вырабляецца з опійнага маку. ‖ *прым.* **гераі́навы**, -ая, -ае.

**ГЕРАІ́НЯ** *гл.* герой.

**ГЕРАІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выяўляе гераізм, здольны на гераізм. *Г. ўчынак.* **2.** Які мае адносіны да герояў старажытнасці, расказвае пра іх подзвігі. *Г. эпас.* ‖ *наз.* **гераі́чнасць**, -і, *ж.*

**ГЕРА́ЛЬДЫКА**, -і, *ДМ* -дыцы, *ж.* Гістарычная дысцыпліна, якая займаецца вывучэннем гербаў, іх гісторыі. ‖ *прым.* **геральды́чны**, -ая, -ае.

**ГЕРАНТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая займаецца вывучэннем працэсаў старэння чалавека і пошукамі спосабаў падаўжэння жыцця. ‖ *прым.* **геранталагі́чны**, -ая, -ае.

**ГЕРАНТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне геранталогіі.

**ГЕРА́НЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Травяністая расліна сямейства гераніевых з пахучым лісцем, якая разводзіцца як дэкаратыўная ці як прамысловая для атрымання эфірнага алею. || *прым.* **гера́ніевы**, -ая, -ае.

**ГЕРБ**, -а́, *мн.* гербы́, -бў *і* ге́рбаў, *м.* Эмблема дзяржавы, горада, дваранскага роду і пад., якая змяшчаецца на сцягах, манетах, пячатках, дзяржаўных і іншых афіцыйных дакументах. *Дзяржаўны г.* || *прым.* **ге́рбавы**, -ая, -ае. *Гербавая пячатка. Гербавая папера.*

**ГЕРБА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Калекцыя засушаных раслін. || *прым.* **герба́рны**, -ая, -ае.

**ГЕРБІЦЫ́ДЫ**, -аў, *адз.* гербіцы́д, -у, *М* -дзе, *м.* Хімічныя рэчывы для барацьбы з пустазеллем. || *прым.* **гербіцы́дны**, -ая, -ае.

**ГЕРКУЛЕ́С**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а, *мн.* -ы, -аў. Чалавек вялікай фізічнай сілы [паводле лацінскай назвы Геракла — героя старажытнагрэчаскай міфалогіі]. **2.** -у. Аўсяныя крупы спецыяльнага прыгатавання. || *прым.* **геркуле́саўскі**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **геркуле́савы**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Геркулесаўскі целасклад. Геркулесавая каша.*

**ГЕРМА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. герметычны, напр.: *гермакабіна, гермакамера, гермапальчатка, гермашлем.*

**ГЕРМАНА...** *і* **ГЕРМАНА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. германскі, напр.: *германафільства, германа-аўстрыйскі.*

**ГЕРМАНАФІ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які мае прыхільнасць да ўсяго нямецкага. || *прым.* **германафі́льскі**, -ая, -ае.

**ГЕРМАНАФО́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Праціўнік, ненавіснік усяго нямецкага. || *прым.* **германафо́бскі**, -ая, -ае.

**ГЕРМАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Прывіць (прывіваць) каму-, чаму-н. нямецкую культуру, мову; анямечыць (анямечваць). || *наз.* **германіза́цыя**, -і, *ж.*

**ГЕРМАНІ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Слова або выраз у якой-н. мове, запазычаныя з германскіх моў.

**ГЕРМАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне германістыкі. || *ж.* **германі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ГЕРМАНІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Сукупнасць навук аб германскіх мовах, культуры, літаратуры і фальклоры.

**ГЕРМА́НЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* **1.** Назва старажытных плямён індаеўрапейскай моўнай групы, што жылі ў цэнтральнай, заходняй і паўднёва-заходняй Еўропе. **2.** Тое, што і *немцы* (уст.). || *ж.* **герма́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **герма́нскі**, -ая, -ае.

**ГЕРМАФРАДЫ́Т**, -а, *М* -ды́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Арганізм, часцей жывёльны, які мае адзнакі абодвух полаў.

**ГЕРМАФРАДЫТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Наяўнасць адзнак абодвух полаў у адным арганізме.

**ГЕРМАШЛЕ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Герметычны шлем лётчыкаў і касманаўтаў.

**ГЕРМЕТЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Зрабіць (рабіць) герметызацыю чаго-н.

**ГЕРМЕТЫЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Забеспячэнне непранікальнасці сцен і злучэнняў чаго-н. (памяшканняў, апаратаў і пад.) для вадкасцей і газаў. || *прым.* **герметызацы́йны**, -ая, -ае.

**ГЕРМЕТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які не прапускае вадкасці і газы. || *наз.* **герметы́чнасць**, -і, *ж.*

**ГЕРО́ІКА**, -і, *ДМ* -ро́іцы, *ж.* Гераічны змест, гераічны бок чыёй-н. дзейнасці. *Г. нашых дзён.*

**ГЕРО́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Храбры, самаадданы чалавек, які зрабіў, робіць подзвігі. *Г. Вялікай Айчыннай вайны. Г. працы.* **2.** Галоўная дзеючая асоба літаратурна-мастацкага твора. *Г. рамана.* **3.** *чаго.* Асоба, што ўвасабляе ў сабе характэрныя рысы эпохі, асяроддзя. *Г. нашага часу.* **4.** *каго-чаго.* Чалавек, які чым-н. вылучыўся, які з'яўляецца прадметам захаплення. *Г. дня.* ○ **Герой Беларусі** — найвышэйшая ўзнагарода Рэспублікі Беларусь за выключныя заслугі перад дзяржавай і грамадствам. **Герой Савецкага Саюза** — ганаровае званне, якое прысвойвалася ў СССР за выключную доблесць і гераізм. **Герой Сацыялістычнай Працы** — ганаровае званне, якое прысвойвалася ў СССР за выдатныя дасягненні ў галіне народнай гаспадаркі і культуры. **Горад-герой** — ганаровае званне, прысвоенае гарадам, насельніцтва якіх праявіла масавы гераізм і мужнасць у абароне Радзімы ў гады Вялікай Айчыннай вайны. **Крэпасць-герой** — ганаровае званне, прысвоенае Брэсцкай крэпасці за абарону і мужнасць у гады Вялікай Айчыннай вайны. || *ж.* **гераі́ня**, -і, *мн.* -і, -раі́нь. ○ **Маці-гераіня** — ганаровае званне, якое прысвойвалася ў СССР шматдзетным маці, якія выхавалі не менш як 10 дзяцей. || *прым.* **геро́йскі**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Г. ўчынак.*

**ГЕРО́ЙСТВА**, -а, *н.* Геройскія паводзіны. *Праявіць г.*

**ГЕРЦ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адзінка вымярэння частаты перыядычных працэсаў, напр., ваганняў.

**ГЕ́РЦАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тытул вышэйшага дваранства або ўладарных князёў у краінах Заходняй Еўропы, а таксама асоба, якая мае гэты тытул. || *ж.* **герцагі́ня**, -і, *мн.* -і, -гі́нь. || *прым.* **ге́рцагскі**, -ая, -ае.

**ГЕ́РЦАГСТВА**, -а, *н.* Феадальная дзяржава на чале з герцагам.

**ГЕСТА́ПА**, *нескл., н.* Тайная дзяржаўная паліцыя ў фашысцкай Германіі. || *прым.* **геста́паўскі**, -ая, -ае.

**ГЕСТА́ПАВЕЦ**, -паўца, *мн.* -паўцы, -паўцаў, *м.* Супрацоўнік гестапа. || *ж.* **геста́паўка**, -і, *ДМ* -паўцы, *мн.* -і, -павак.

**ГЕ́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Адразная асобна скроеная частка блузкі, сукенкі і пад., да якой на вышыні грудзей прышываецца астатняя частка і рукавы; какетка[2]. *Сукенка на гестцы.*

**ГЕ́ТА**, *нескл., н.* У некаторых краінах: асобныя кварталы горада, выдзеленыя для пражывання дыскрымінаваных расавых ці рэлігійных груп насельніцтва. *Негрыцянскае г.* (у ЗША). *Яўрэйскія г.* (у Еўропе пры фашызме). *Каталіцкія г.* (у Паўночнай Ірландыі).

**ГЕ́ТМАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). **1.** Ва Украіне ў 16—17 стст.: выбарны начальнік казацкага войска і вярхоўны правіцель. **2.** У Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы ў 16—18 стст.: камандуючы войскамі. || *прым.* **ге́тманскі**, -ая, -ае.

**ГЕ́ТРЫ**, -аў, *адз.* ге́тра, -ы, *ж.* Від цёплай адзежы для ног, якая надзяваецца на абутак і закрывае ногі ад шчыкалатак да каленяў. || *прым.* **ге́траві**, -ая, -ае.

**ГЕТЭРАГЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Разнародны па сваім складзе або паходжанні частак; *проціл.* гамагенны.

**ГЕШЭ́ФТ**, -у, *М* -фце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Спекуляцыйная, выгадная здзелка.

**ГІ́БЕЛЬ**, -і, *ж.* **1.** Знішчэнне, разбурэнне, смерць (пры катастрофе, стыхійным бедстве і пад.). *Г. касмічнага карабля.* **2.** *чаго.* Незлічонае мноства, вялікая колькасць (разм.). *Летам г. работы ў сялян.*

**ГІ́БЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які вядзе да гібелі, пагражае гібеллю (у 1 знач.). *Г. крок.* || *наз.* **гі́бельнасць**, -і, *ж.*

**ГІБЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* (разм.). Пакутаваць, гараваць ад нястачы, голаду, цяжкай працы і пад. *Г. у галечы.* || *наз.* **гібе́нне**, -я, *н.*

**ГІ́БКІ**, -ая, -ае. **1.** Які лёгка гнецца і разгінаецца; пругкі. *Г. дубец.* **2.** *перан.* Багаты адценнямі, выразны (пра голас, характар і пад.). *Г. голас.* **3.** *перан.* Здольны ўмела і хутка рэагаваць на пэўныя ўмовы, абставіны, прызвычайвацца да іх. *Гібкая палітыка.* || *наз.* **гі́бкасць**, -і, *ж.*

**ГІ́БЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які пагражае гібеллю, не абяцае нічога добрага; безнадзейны. *Гіблая справа. Гіблае месца.*

**ГІБО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікая чалавекападобная малпа, звычайна з белым футрам вакол твару, якая жыве ў Паўднёва-Усходняй Азіі.

**ГІБРЫ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Арганізм, атрыманы шляхам гібрыдызацыі. || *прым.* **гібры́дны**, -ая, -ае.

**ГІБРЫДЫЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Скрыжаванне розных відаў арганізмаў з мэтай атрымання лепшых па якасці сартоў, відаў, парод.

**ГІГА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Жывёла, расліна і пад. незвычайна вялікіх памераў, велікан. *Слон-г.* **2.** *перан.* Пра што-н. незвычайна вялікіх памераў. *Завод-г.* **3.** *перан.* Талент, вялікі дзеяч у якой-н. галіне. *Гіганты навукі.*

**ГІГАНТАМА́НІЯ**, -і, *ж.* Неапраўданае імкненне да чаго-н. маштабнага, вялікага, грандыёзнага.

**ГІГА́НЦКІ**, -ая, -ае. **1.** Вельмі вялікі па памерах. *Гіганцкая ліпа. Ісці гіганцкімі крокамі* (таксама перан.: робячы вялікія поспехі). **2.** Выключны па сіле, важнасці. *Г. размах будоўлі. Гіганцкія поспехі ў асваенні космасу.*

**ГІГІЕ́НА**, -ы, *ж.* **1.** Раздзел медыцыны, які вывучае ўмовы захавання здароўя. **2.** Сістэма мер, накіраваная на падтрыманне здароўя, папярэджанне захворванняў. *Г. працы. Г. харчавання. Асабістая г. Г. лесу. Г. водных басейнаў.* ‖ *прым.* **гігіені́чны**, -ая, -ае.

**ГІГІЕНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне гігіены.

**ГІГІЕНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* гігіена. **2.** Які адпавядае нормам гігіены. *Гігіенічнае адзенне.* ‖ *наз.* **гігіені́чнасць**, -і, *ж.*

**ГІГРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. вільгаць, вільготны, напр.: *гігравата, гіграметрычны.*

**ГІГРАСКАПІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Здольны лёгка паглынаць вільгаць з навакольнага асяроддзя. *Гіграскапічная вата.* ‖ *наз.* **гіграскапі́чнасць**, -і, *ж.*

**ГІД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які суправаджае турыстаў і знаёміць іх са славутасцямі горада, краю і пад. **2.** Даведнік для турыстаў. ‖ *прым.* **гі́даўскі**, -ая, -ае.

**ГІ́ДРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** У старажытнагрэчаскай міфалогіі: шматгаловая змяя, у якой замест адсечаных галоў выраталі новыя. **2.** Дробная бесхрыбетная кішэчнаполасцевая жывёліна, прэснаводны паліп са шчупальцамі вакол рота.

**ГІДРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. вада, водны, вадзяны, напр.: *гідраагрэгат, гідраавіяцыя, гідрабіялогія, гідрадынаміка.*

**ГІДРАВУ́ЗЕЛ**, -зла́, *мн.* -злы́, -злО́ў, *м.* Комплекс гідратэхнічных збудаванняў, размешчаных паблізу адзін аднаго і аб'яднаных агульнай мэтай і ўмовамі работы. *Энергетычны г.* ‖ *прым.* **гідравузлавы́**, -а́я, -о́е.

**ГІДРАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Раздзел гідралогіі, які займаецца апісаннем і вывучэннем вод зямной паверхні. ‖ *прым.* **гідраграфі́чны**, -ая, -ае.

**ГІДРАКАСЦЮ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльны касцюм для работы пад вадой. *Г. вадалаза.*

**ГІДРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая займаецца вывучэннем воднай прасторы Зямлі і руху вады ў прыродзе. ‖ *прым.* **гідралагі́чны**, -ая, -ае.

**ГІДРАПО́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* Вырошчванне раслін без грунту на штучных пажыўных растворах. ‖ *прым.* **гідрапо́нны**, -ая, -ае.

**ГІДРАПУ́ЛЬТ**, -а, *М* -льце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Бак з ручной помпай для палівання, апырскавання і афарбоўкі.

**ГІДРАСАМАЛЁТ**, -а, *М* -лёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Самалёт, прыстасаваны для пасадкі на ваду і ўзлёту з вады. ‖ *прым.* **гідрасамалётны**, -ая, -ае.

**ГІДРАСТА́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Тое, што і *гідраэлектрастанцыя.*

**ГІДРАТЭ́ХНІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* Галіна навукі і тэхнікі, якая займаецца выкарыстаннем водных рэсурсаў у народнай гаспадарцы і рэгуляваннем іх дзеянняў. ‖ *прым.* **гідратэхні́чны**, -ая, -ае.

**ГІДРА́ЎЛІКА**, -і, *ДМ* -ліцы, *ж.* Навука аб законах раўнавагі і руху вадкасцей і аб спосабах практычнага прымянення гэтых законаў. ‖ *прым.* **гідраўлі́чны**, -ая, -ае. *Г. прэс.*

**ГІДРАЭЛЕКТРАСТА́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Электрастанцыя, якая выкарыстоўвае энергію вады для выпрацоўкі электраэнергіі.

**ГІДРО́ЛІЗ**, -у, *м.* (спец.). Абменная рэакцыя паміж рэчывам і вадой. ‖ *прым.* **гідро́лізны**, -ая, -ае.

**ГІЕ́НА**, -ы, *мн.* -ы, гіе́н, *ж.* Драпежнае млекакормячае сямейства гіенавых, якое харчуецца мярцвячынай. *Плямістая г.* ‖ *прым.* **гіе́навы**, -ая, -ае.

**ГІЗ**, -а *і* -у, *м.* (разм.). **1.** -у, *гл.* гізаваць. **2.** -а, *мн.* -ы́, -о́ў. Вялікая муха, самка якой жывіцца крывёю жывёлы і чалавека; сляпень. *Г. напаў на скаціну.*

**ГІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; *незак.* (разм.). Імкліва бегаць, ратуючыся ад укусаў гіза (у 2 знач.). *Каровы гізуюць.* ‖ *наз.* **гіз**, -у, *м.*

**ГІ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Утвараць прарэзлівыя, адрывістыя гукі, ускрыкваць. ‖ *аднакр.* **гі́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **гі́канне**, -я, *н. і* **гік**, -у, *м.*

**ГІ́ЛЬДЫЯ**, -і, *мн.* -і, -дый, *ж.* **1.** У сярэдневяковай Еўропе: аб'яднанне купцоў або рамеснікаў, якія абаранялі інтарэсы сваіх членаў. **2.** У дарэвалюцыйнай Расіі: адзін з разрадаў, на якія падзялялася купецтва ў залежнасці ад маёмаснага стану. *Купец другой гільдыі.* **3.** Увогуле саюз, аб'яднанне людзей адной ці падобных прафесій, мэт. *Г. літаратараў.* ‖ *прым.* **гільдзе́йскі**, -ая, -ае.

**ГІ́ЛЬЗА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Металічная закрытая трубка для кідальнага зараду і сродкаў запальвання. **2.** Папяровая трубачка, якую набіваюць тытунём пры вырабе папярос. ‖ *прым.* **гі́льзавы**, -ая, -ае.

**ГІЛЬЯЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -цін, *ж.* Прылада для пакарання смерцю шляхам адсякання галавы асуджанага. ‖ *прым.* **гільяці́нны**, -ая, -ае.

**ГІЛЬЯЦІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак.* і *незак., каго.* Пакараць (караць) на гільяціне.

**ГІМН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Урачыстая песня, прынятая як сімвал дзяржаўнага або сацыяльнага адзінства. *Дзяржаўны г. Беларусі.* **2.** Хвалебная песня або музычны твор у гонар каго-, чаго-н. *Г. працы. Г. міру і свабодзе.*

**ГІМНАЗІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вучань гімназіі. ‖ *ж.* **гімназі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **гімназі́сцкі**, -ая, -ае.

**ГІМНА́ЗІЯ**, -і, *мн.* -і, -зій, *ж.* Агульнаадукацыйная сярэдняя навучальная ўстанова з паглыбленым вывучэннем некаторых прадметаў. *Жаночая г.* ‖ *прым.* **гімназі́чны**, -ая, -ае.

**ГІМНА́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца гімнастыкай. ‖ *ж.* **гімна́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ГІМНА́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Сістэма практыкаванняў для фізічнага развіцця арганізма. ‖ *прым.* **гімнасты́чны**, -ая, -ае.

**ГІМНАСЦЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Верхняя сарочка са стаячым каўняром, прынятая як ваеннае форменнае адзенне.

**ГІНЕКАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая вывучае анатама-фізіялагічныя асаблівасці жаночага арганізма, жаночыя хваробы і іх лячэнне. ‖ *прым.* **гінекалагі́чны**, -ая, -ае.

**ГІНЕКО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па гінекалогіі.

**ГІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; гінь; *незак.* **1.** Спыняць існаванне, знішчацца, прападаць. *Г. ад кулі. Расліны гінуць ад марозу.* **2.** *перан.* Рушыцца, не адбывацца (пра планы, намеры і пад.). *Гіне мая надзея на паездку.* ‖ **загі́нуць**, -ну, -неш, -не; загі́нь.

**ГІПА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які знаходзіцца ўнізе, напр., *гіпадэрма*; 2) паніжаны супраць нормы, напр.: *гіпавітаміноз, гіпасакрэцыя.*

**ГІПАПАТА́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *бегемот.*

**ГІПАТАНІ́Я**, -і, *ж.* Паніжэнне крывянога ціску. ‖ *прым.* **гіпатані́чны**, -ая, -ае. *Гіпатанічная хвароба.*

**ГІПАТО́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які хварэе на гіпатанічную хваробу.

**ГІПАТЭНУ́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -ну́з, *ж.* У матэматыцы: старана прамавугольнага трохвугольніка, якая ляжыць насупраць прамога вугла.

**ГІПАТЭТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Заснаваны на гіпотэзе; магчымы. *Гіпатэтычная думка.* ‖ *наз.* **гіпатэты́чнасць**, -і, *ж.*

**ГІПЕР...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. перавышэння мяжы, нормы, напр.: *гіпервітаміноз, гіперінфляцыя, гіперкомплексны, гіперпластычны.*

**ГІПЕ́РБАЛА**[1], -ы, *мн.* -ы, -бал, *ж.* Мастацкі прыём, заснаваны на перабольшанні ўласцівасцей чалавечага характару, прадмета ці з'явы. ‖ *прым.* **гіпербалі́чны**, -ая, -ае.

**ГІПЕ́РБАЛА**[2], -ы, *мн.* -ы, -бал, *ж.* У матэматыцы: незамкнёная крывая з дзвюх галін, якая ўтвараецца пры перасячэнні канічнай паверхні плоскасцю. ‖ *прым.* **гіпербалі́чны**, -ая, -ае.

**ГІПЕРМА́РКЕТ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйная крама самаабслугоўвання, якая гандлюе таварамі паўсядзённага попыту.

**ГІПЕРТАНІ́Я**, -і, *ж.* Павышэнне крывянога ціску, а таксама хвароба, звязаная з такім павышэннем. ‖ *прым.* **гіпертані́чны**, -ая, -ае.

**ГІПЕРТО́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які хварэе на гіпертанічную хваробу.

**ГІПЕРТРАФІ́РАВАНЫ**, -ая, -ае. Які падвергся гіпертрафіі.

**ГІПЕРТРАФІ́РАВАЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -руецца; *зак.* і *незак.* Падвергнуцца (падвяргацца) гіпертрафіі.

**ГІПЕРТРАФІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.* Падвергнуць (падвяргаць) гіпертрафіі.

**ГІПЕРТРАФІ́Я**, -і, *ж.* **1.** Хваравітае павелічэнне аб'ёму якога-н. органа цела. *Г. сэрца.* **2.** *перан.* Празмернае развіццё чаго-н. ‖ *прым.* **гіпертрафі́чны**, -ая, -ае.

**ГІПНАТЫЗАВА́ЦЬ**, -зую, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; *незак., каго (што).* Прыводзіць у стан гіпнозу. ‖ *зак.* **загіпнатызава́ць**, -зую, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -заваны. ‖ *наз.* **гіпнатызава́нне**, -я, *н. і* **гіпнатыза́цыя**, -і, *ж.*

**ГІПНАТЫЗЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па гіпнозе, які валодае здольнасцю гіпнатызаваць. ‖ *прым.* **гіпнатызёрскі**, -ая, -ае.

**ГІПНАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Сукупнасць з'яў, якія ўзнікаюць пры гіпнозе. **2.** *перан.* Здольнасць уздзейнічаць на каго-н. ‖ *прым.* **гіпнаты́чны**, -ая, -ае.

**ГІПНО́З**, -у, *м.* Асаблівы стан частковага, няпоўнага сну, які выклікаецца ўнушэннем, а таксама сам спосаб такога ўнушэння. *Быць у стане гіпнозу. Лячыць гіпнозам.* ‖ *прым.* **гіпнаты́чны**, -ая, -ае.

**ГІПО́ТЭЗА**, -ы, *мн.* -ы, -тэз, *ж.* Навуковае меркаванне, якое прыводзіцца для тлумачэння тых ці іншых з'яў і патрабуе тэарэтычнага абгрунтавання і праверкі на вопыце, перш чым стаць навуковай тэорыяй.

**ГІПС**, -у, *м.* **1.** Мінеральнае рэчыва белага ці жоўтага колеру. *Пласт гіпсу.* **2.** Скульптурны злепак з такога рэчыва. **3.** Хірургічная павязка з такога рэчыва, якую накладваюць пры пераломах, вывіхах. *Нага ў гіпсе.* ‖ *прым.* **гіпсавы**, -ая, -ае.

**ГІПСАВА́ЦЬ**, -сую, -су́еш, -су́е; -су́й; -саваны; *незак., што.* **1.** Накладваць гіпсавую павязку. *Г. нагу.* **2.** Насычаць глебу гіпсам. *Г. глебу.* ‖ *зак.* **загіпсава́ць**, -сую, -су́еш, -су́е; -су́й; -саваны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **гіпсава́нне**, -я, *н.*

**ГІПЮ́Р**, -у, *м.* Карункавая тканіна з выпуклым узорным малюнкам. ‖ *прым.* **гіпю́равы**, -ая, -ае.

**ГІ́РА**, -ы, *мн.* -ы, гір, *ж.* **1.** Металічны груз пэўнай вагі, які выкарыстоўваецца ў якасці меры пры важанні, а таксама спартыўная прылада для практыкаванняў у цяжкай атлетыцы. **2.** Вісячы груз для процівагі або прывядзення ў рух механізма. *Гадзіннік з гірамі.* ‖ *прым.* **гіравы́**, -а́я, -о́е.

**ГІРАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Цяжкаатлет, які займаецца гімнастычнымі практыкаваннямі з гірамі.

**ГІРАСКО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор у выглядзе вярчальнага цела на вертыкальнай восі, які служыць для падтрымання ў стане раўнавагі якіх-н. прадметаў. *Ваўчок зроблены па прынцыпе гіраскопа.* ‖ *прым.* **гіраскапі́чны**, -ая, -ае.

**ГІРЛЯ́НДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Кветкі і зеляніна, сплеценыя ў выглядзе шырокай істужкі, а таксама наогул арнамент такой формы ці доўгі рад, ланцуг чаго-н. *Г. з дзеразы.* ‖ *прым.* **гірля́ндавы**, -ая, -ае.

**ГІСТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб будове і развіцці тканак чалавека і жывёлы. ‖ *прым.* **гісталагі́чны**, -ая, -ае.

**ГІСТАРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Разгляд прадметаў і з'яў у іх гістарычным развіцці.

**ГІСТАРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* гісторыя. **2.** Які рэальна існаваў, не выдуманы. *Г. факт.* **3.** Які адносіцца да часу, ад якога захаваліся пісьмовыя помнікі (напр., рукапісы); *проціл.* дагістарычны. *Гістарычная эпоха.* **4.** Выключна важны, які ўвайшоў у гісторыю. *Гістарычныя рашэнні.* ‖ *наз.* **гістары́чнасць**, -і, *ж.* (да 1 і 4 знач.). *Г. мастацкага твора.*

**ГІСТАРЫЯГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука аб развіцці гістарычных ведаў. **2.** Сукупнасць гістарычных даследаванняў, прысвечаных якому-н. перыяду ці праблеме. *Г. Вялікага Княства Літоўскага.* ‖ *прым.* **гістарыяграфі́чны**, -ая, -ае.

**ГІСТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне гісталогіі.

**ГІСТО́РЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне гісторыі.

**ГІСТО́РЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Рэчаіснасць у яе развіцці і руху. *Законы гісторыі.* **2.** Навука аб развіцці чалавечага грамадства. *Г. Старажытнага свету. Г. Сярэдніх вякоў.* **3.** Ход развіцця, руху чаго-н. *Г. раслін. Г. знешняга гандлю. Г. хваробы.* **4.** Сукупнасць фактаў і падзей, што адносяцца да мінулага жыцця; мінулае, якое захавалася ў памяці людзей. *Народныя вясельныя абрады ўжо сталі гісторыяй.* **5.** *мн.* -і, -рый. Расказ, апавяданне пра што-н. *Дзеці любяць слухаць займальныя гісторыі.* **6.** *мн.* -і, -рый. Здарэнне, выпадак, пераважна непрыемныя. *Трапіць у сумную гісторыю. Вось дык г.!* ‖ *прым.* **гістары́чны**, -ая, -ае (да 1—4 знач.).

**ГІТА́РА**, -ы, *мн.* -ы, -та́р, *ж.* Струнны шчыпковы музычны інструмент з корпусам-рэзанатарам у выглядзе васьмёркі і доўгім грыфам. ‖ *прым.* **гіта́рны**, -ая, -ае.

**ГІТАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на гітары. ‖ *ж.* **гітары́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **гітары́сцкі**, -ая, -ае.

**ГІ́ЦАЛЬ**, -цля, *мн.* -цлі, -цляў, *м.* **1.** Той, хто знімае скуры з забітых жывёл; скуралуп (у 1 знач.; уст.). **2.** *перан.* Свавольнік, нягоднік (лаянк.). *Ах, ты г.!*

**ГІ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Вузкая і доўгая спартыўная шлюпка з нізкімі бартамі.

**ГІЯЦЫ́НТ**, -а *і* -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Травяністая расліна сямейства гіяцынтавых з прадаўгаватымі вузкімі лістамі і пахучымі кветкамі, сабранымі ў суквецце. **2.** -у. Мінерал чырвонага ці залацістааранжавага колеру, разнавіднасць цыркону. ‖ *прым.* **гіяцы́нтавы**, -ая, -ае.

**ГЛАБА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Усеагульны, які ахоплівае ўвесь зямны шар, увесь свет. *Праблема чыстай вады набыла г. характар.* ○ **Глабальная ракета** — ракета, якая можа даставіць баявы зарад у любое месца зямнога шара. ‖ *наз.* **глаба́льнасць**, -і, *ж.*

**ГЛАВА́**, -ы́, *мн.* гла́вы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) главы́, глаў, *ж.* Раздзел кнігі, артыкула і пад. *Г. аповесці.*

**ГЛАГО́ЛІЦА**, -ы, *ж.* Адна з дзвюх старaславянскіх азбук, якая амаль поўнасцю супадае з кірыліцай па складзе, але адрозніваецца формай літар. ‖ *прым.* **глагалі́чны**, -ая, -ае. *Глагалічнае пісьмо.*

**ГЛАДЗІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *прасавальны*[1].

**ГЛА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; гладзь; -джаны; *незак.* **1.** *каго-што.* Лёгка, ласкава праводзіць рукой па чым-н. *Г. па галоўцы* (таксама перан.: патураць каму-н.). *Г. супраць шэрсці* (таксама перан.: гаварыць ці рабіць каму-н. наперакор). **2.** Тое, што і *прасаваць*[1]. ‖ *зак.* **пагла́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны. ‖ *наз.* **гла́джанне**, -я, *н.*

**ГЛАДЗЬ**[1], -і, *ж.* Роўная паверхня чаго-н. *Г. мора.*

**ГЛАДЗЬ**[2], -і, *ж.* Спосаб вышывання шырокімі шчыльнымі шыўкамі.

**ГЛАДКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. гладкі, напр.: *гладкаскуры, гладкашэрсны, гладкалісты.*

**ГЛАДКАСТВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. З гладкім, не наразным ствалом (у 2 знач.). *Гладкаствольнае ружжо.*

**ГЛА́ДКІ**, -ая, -ае. **1.** Роўны, без упадзін і выступаў. *Г. стол. Гладкая пляцоўка.* **2.** *перан.* Просты, лёгкі для разумення (пра мову, верш, думкі і пад.). *Г. стыль. Лектар гаварыў гладка* (прысл.). **3.** Сыты, адкормлены (разм.). *Гладкія коні. Г. пан.* ‖ *наз.* **гла́дкасць**, -і, *ж.*

**ГЛАДЫЁЛУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дэкаратыўная травяністая расліна сямейства касачовых з мечападобнымі лістамі і вялікімі яркімі кветкамі.

**ГЛАДЫ́Ш**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Збан без ручкі. *Г. з квасам.*

**ГЛАДЫЯ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У Старажытным Рыме: раб або ваеннапалонны, які павінен быў змагацца на арэне цырка з другім такім рабом або дзікімі звярамі. ‖ *прым.* **гладыя́тарскі**, -ая, -ае.

**ГЛАЗЕ́Т**, -у, *М* -зе́це, *м.* Парча з каляровай шаўковай асновай і тканымі залатымі ці сярэбранымі ўзорамі. ‖ *прым.* **глазе́тавы**, -ая, -ае.

**ГЛАЗУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Шклопадобны сплаў, якім пакрываюць гліняную, фаянсавую і пад. пасуду. **2.** Густы цукровы сіроп, у якім вараць садавіну і якім пакрываюць мучныя вырабы. ‖ *прым.* **глазу́рны**, -ая, -ае.

**ГЛАЗУРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што.* Пакрыць (пакрываць) глазурай. *Г. пасуду.* ‖ *наз.* **глазуро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж. і* **глазурава́нне**, -я, *н.*

**ГЛАМАЗДА́**, -ы́, *М* -дзе́, *ж.* (разм.). Пра няўклюднага чалавека, пра нязграбную рэч.

**ГЛАМУ́Р**, -у, *м.* Асаблівая прывабнасць, стыльнасць, эфектнасць каго-, чаго-н. ‖ *прым.* **гламу́рны**, -ая, -ае.

**ГЛА́НДЫ**, -аў, *адз.* гла́нда, *ДМ* -дзе, *ж.* Паднябенныя міндаліны. ‖ *прым.* **гла́ндавы**, -ая, -ае.

**ГЛАСА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Тлумачальны слоўнік устарэлых і малазразумелых слоў да якога-н. тэксту, пераважна старажытнага.

**ГЛА́СНЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* У дарэвалюцыйнай Расіі: член гарадской думы, гарадскі дэпутат.

**ГЛАЎКО́МА**, -ы, *ж.* Хвароба вачэй, пры якой павышаецца ціск унутры вока. ‖ *прым.* **глаўко́мны**, -ая, -ае.

**ГЛЕ́БА**, -ы, *мн.* -ы, глеб, *ж.* **1.** Верхні слой зямной кары. *Гліністая г.* **2.** *перан.* Аснова, апора. *Падрыхтаваць глебу для перагавораў.* ◊ **Выбіць глебу з-пад** *чыіх* **ног** — прымусіць пераканацца ў беспадстаўнасці чаго-н.; пазбавіць упэўненасці ў чым-н. ‖ *прым.* **гле́бавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ГЛЕБАЗНА́ВЕЦ**, -на́ўца, *мн.* -на́ўцы, -на́ўцаў, *м.* Спецыяліст у галіне глебазнаўства.

**ГЛЕБАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Навука, якая займаецца вывучэннем глебы (у 1 знач.). ‖ *прым.* **глебазна́ўчы**, -ая, -ае.

**ГЛЕ́ДЖАННЕ**, -я, *н.* У выразе: **пункт гледжання** — тое, што і пункт погляду.

**ГЛЕ́ІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Пакрыты глеем, які змяшчае многа глею. *Глеістае дно возера.* **2.** Вязкі. *Глеістая дарога.* ‖ *наз.* **гле́істасць**, -і, *ж.*

**ГЛЕЙ**, -ю, *м.* Вязкі асадак з мінеральных або арганічных рэчываў на дне вадаёмаў. ‖ *прым.* **гле́евы**, -ая, -ае.

**ГЛЕ́ЙКІ**, -ая, -ае. Вязкі, ліпкі. *Глейкая гліна.* ‖ *наз.* **гле́йкасць**, -і, *ж.*

**ГЛЕ́ТЧАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *ляднік.* ‖ *прым.* **гле́тчарны**, -ая, -ае.

**ГЛІ́НА**, -ы, *ж.* Асадкавая горная парода, вязкая ў вільготным стане, якая ўжываецца для ганчарных вырабаў, будаўнічых і скульптурных работ. ‖ *прым.* **гліня́ны**, -ая, -ае.

**ГЛІНАЗЁМ**, -у, *м.* Вокіс алюмінію, які прымяняецца ў тэхніцы для атрымання алюмінію. ‖ *прым.* **гліназёмны**, -ая, -ае.

**ГЛІНАЗЁМІСТЫ**, -ая, -ае. Які змяшчае ў сабе гліназём; з гліназёмам. *Г. цэмент.*

**ГЛІ́НІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўтрымлівае ў сабе гліну. *Гліністыя глебы.* **2.** Колерам падобны на гліну. ‖ *наз.* **глі́ністасць**, -і, *ж.*

**ГЛІНТВЕ́ЙН**, -у, *м.* Гарачы напітак з чырвонага віна з цукрам і вострымі прыправамі.

**ГЛІ́ПТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Майстэрства разьбы на каштоўных камянях. ‖ *прым.* **гліпты́чны**, -ая, -ае.

**ГЛІ́СЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пласкадоннае быстраходнае маторнае судна, якое пры вялікай хуткасці лёгка слізгаціць па воднай паверхні і дае малую асадку (у 2 знач.). ‖ *прым.* **глі́серны**, -ая, -ае.

**ГЛІ́СНІК**, -у, *м.* Расліна сямейства складанакветных, высушанае насенне якой выкарыстоўваецца як глістагонны сродак; цытвора. ‖ *прым.* **глі́снікавы**, -ая, -ае.

**ГЛІСТ**, -а́, *М* -сце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Чарвяк, які паразітуе ў арганізме чалавека або жывёлы. **2.** Пра худога чалавека (груб., разм.). ‖ *прым.* **глі́сны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ГЛІСТАГО́ННЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для выдалення глістоў (пра лякарства). *Глістагонныя сродкі.*

**ГЛІЦЫ́НІЯ**, -і, *ж.* Паўднёвая павойная дэкаратыўная расліна сямейства бабовых з гронкамі пахучых кветак. ‖ *прым.* **гліцы́ніевы**, -ая, -ае.

**ГЛІЦЭРЫ́НА**, -ы, *ж.* Бясколерная масляністая вадкасць, якую атрымліваюць з тлушчаў для медыцынскіх і тэхнічных мэт. ‖ *прым.* **гліцэры́навы**, -ая, -ае.

**ГЛО́БУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мадэль зямнога шара або нябеснай сферы, умацаваная на вертыкальнай падстаўцы. ‖ *прым.* **гло́бусны**, -ая, -ае.

**ГЛО́СА**, -ы, *мн.* -ы, глос, *ж.* (спец.). Пераклад або тлумачэнне незразумелага слова або выразу, пераважна ў старажытных тэкстах на палях або ў самім тэксце. *Глосы ў скарынаўскіх тэкстах.*

**ГЛОТАГЕНЕ́З**, -у, *м.* (спец.). Працэс станаўлення чалавечай натуральнай гукавой мовы. ‖ *прым.* **глотагене́зны**, -ая, -ае.

**ГЛО́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Частка стрававальнага тракту: мышачная трубка, якая злучае поласць рота са страваводам. **2.** Тое, што і *горла* (у 1 і 2 знач.; разм.). *Схапіць за глотку.* ‖ *прым.* **гло́тачны**, -ая, -ае.

**ГЛУЗД**, -у, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Розум, развага; мазгі. *Варочаць глуздамі.*

**ГЛУМ**, -у, *м.* **1.** *гл.* глуміць. **2.** Пра што-н. папсаванае, марна страчанае. *Многа сена пайшло ў г.*

**ГЛУМІ́ЦЦА**, глумлюся, глу́мішся, глу́міцца; *незак.* (разм.). **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Марна трацiцца, псавацца. *Цяжка глядзець, як глуміцца дабро.* **2.** *з каго-чаго.* Здзекавацца, кпіць, насміхацца. *Г. з дзіцяці.* ‖ *зак.* **зглумі́цца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., зглу́міцца; зглу́млены (да 1 знач.). ‖ *наз.* **глум**, -у, *м. і* **глумле́нне**, -я, *н.*

**ГЛУМІ́ЦЬ**, глумлю, глу́міш, глу́міць; *незак., што* (разм.). Марна траціць, псаваць. *Г. дабро.* ‖ *зак.* **зглумі́ць**, зглумлю, зглу́міш, зглу́міць; зглу́млены. ‖ *наз.* **глум**, -у, *м. і* **глумле́нне**, -я, *н.*

**ГЛУ́ПСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Дурны ўчынак, думка, недарэчнасць. **2.** Што-н. нязначнае, дробязнае. *Не варта гаварыць пра г.*

**ГЛУХАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Часткова пазбаўлены слыху; які недачувае.

**ГЛУХАНЕМАТА́**, -ы́, *ДМ* -маце́, *ж.* Адсутнасць слыху і здольнасці гаварыць.

**ГЛУХАНЯМЫ́**, -а́я, -о́е. Пазбаўлены слыху і здольнасці гаварыць.

**ГЛУХАТА́**, -ы́, *ДМ* -хаце́, *ж.* Поўная адсутнасць або частковы недахоп слыху.

**ГЛУХІ́**, -а́я, -о́е. **1.** Пазбаўлены слыху. *Г. чалавек. Падручнікі для глухіх* (наз.). **2.** *перан., да чаго.* Неспагадлівы, раўнадушны. *Г. да чужых патрэб.* **3.** Прыглушаны, невыразны. *Г. трэск. Піяніна гучыць глуха* (прысл.). **4.** Густы, цёмны, непралазны. *Г. лес.* **5.** Ціхі, пустынны. *Г. завулак.* **6.** *перан.* Позні. *Глухая восень. Глухая поўнач.* **7.** Без адтулін, суцэльны. *Глухая сцяна.* ○ **Глухі зычны** — зычны гук, які вымаўляецца без удзелу голасу.

**ГЛУХМЕ́НЬ**, -і, *ж.* (разм.). Глуш, глухое, аддаленае месца. *Лясная г. Жыць у глухмені.*

**ГЛУ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; глух, глу́хла; -ні; *незак.* **1.** Станавіцца глухім (у 1 знач.). **2.** Заціхаць, слабець, знікаць. *Шум глухне. Матор глухне.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Дзічэць, зарастаць пустазеллем. *Цыбуля без догляду глухне ад травы.* **4.** *перан.* Паступова слабець або знікаць. *Пачуцці з часам глухнуць.* ‖ *зак.* **заглу́хнуць**, -не; заглу́х, -хла (да 2—4 знач.) *і* **аглу́хнуць**, -ну, -неш, -не; аглу́х, -хла; -ні (да 1 знач.).

**ГЛУШ**, -ы́, *ж.* **1.** Густа парослы ўчастак лесу. *Лясная г.* **2.** Аддаленае ад паселішчаў месца; захалусце. *Жыву ў глушы, далёка ад горада. У такую г. аўтобусы не даходзяць.* **3.** Позняя, глухая пара. *У такую г. людзі адпачываюць.*

**ГЛУШЫ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Прыстасаванне для змяншэння сілы гуку рухавіка, механізма і пад. **2.** *перан.* Той, хто глушыць (у 3 знач.), падаўляе што-н. *Г. крытыкі.*

**ГЛУШЫ́ЦЬ**, глушу́, глу́шыш, глу́шыць; *незак., каго-што.* **1.** Перашкаджаць слухаць. *Розныя шумы глушылі прамову, і нічога не было чуваць.* **2.** Рабіць нячутным, заглушаць. *Г. радыё.* **3.** Не даваць расці, перашкаджаць развіццю чаго-н. *Крапіва глушыла буракі. Г. ініцыятыву* (перан.). **4.** Моцным ударам аглушаць, пазбаўляць прытомнасці. *Г. рыбу.* **5.** Выключаць (матор, машыну і пад.). *Г. матор.* **6.** Вельмі многа піць чаго-н. (пераважна пра алкаголь; разм.). *Г. гарэлку.* ‖ *зак.* **заглушы́ць**, -глушу́, -глу́шыш, -глу́шыць; -глу́шаны (да 1—3 і 5 знач.) *і* **аглушы́ць**, аглушу́, аглу́шыш, аглу́шыць; аглу́шаны (да 4 знач.). ‖ *наз.* **глушэ́нне**, -я, *н.* (да 4 знач.).

**ГЛУШЭ́Ц**, -шча́, *мн.* -шчы́, -шчо́ў, *м.* **1.** Вялікая лясная птушка сямейства цецерукоў. **2.** Глухі чалавек (разм.). ‖ *прым.* **глушцо́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ГЛЫБ**, -і, *ж.* Тое, што і *глыбіня* (у 2 знач.).

**ГЛЫ́БА**, -ы, *мн.* -ы, глыб, *ж.* Вялікі кавалак, абломак цвёрдага рэчыва. *Г. лёду.* ‖ *прым.* **глы́бавы**, -ая, -ае. *Г. россып.*

**ГЛЫБАКА...** (*гл.* **глыбока...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «глыбока...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *глыбакаводны, глыбакадонны, глыбакадумны.*

**ГЛЫБАКАВО́ДДЗЕ**, -я, *н.* Высокі ўзровень вады ў рацэ, вадаёме.

**ГЛЫБАКАВО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Паўнаводны, глыбокі, па якім могуць хадзіць судны. *Глыбакаводная рака.* **2.** Які жыве або знаходзіцца на глыбіні ў вадзе. *Глыбакаводная фаўна.*

**ГЛЫБАКАДУ́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** Поўны глыбокіх думак; удумлівы. *Г. паэт.* **2.** Сур'ёзны, засяроджаны. *Г. выгляд.* ‖ *наз.* **глыбакаду́мнасць**, -і, *ж.*

**ГЛЫБЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ёе; *незак.* Станавіцца больш глыбокім. ‖ *зак.* **паглыбе́ць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ёе.

**ГЛЫБІНЯ́**, -і́, *мн.* глыбіні, -бінь, *ж.* **1.** Адлегласць ад паверхні да дна або ад якога-н. месца ў напрамку да нізу. *Г. возера.* **2.** *чаго.* Прастора ўнутр ад мяжы, ад краю чаго-н. *У глыбіні лесу.* **3.** *перан., чаго.* Сіла, ступень праяўлення чаго-н.; змястоўнасць. *Г. пачуцця. Г. думак.* ◊ **Да глыбіні душы** — вельмі моцна (крануць, уразіць). **У глыбіні душы** — пра пачуцці, перажыванні людзей, схаваныя ад іншых. ‖ *прым.* **глыбі́нны**, -ая, -ае. *Глыбінная бомба. Глыбінная вёска.*

**ГЛЫБІНЯМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння глыбіні адтулін пазоў, вышыні выступаў у дэталях машын.

**ГЛЫБОКА...** (а таксама **глыбака...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. глыбокі, напр.: *глыбоказалягальны, глыбокапрамярзальны, глыбокарыхліцель, глыбокаўрэзаны, глыбокаразмешчаны, глыбокашаноўны.*

**ГЛЫБОКАПАВАЖА́НЫ**, -ая, -ае. Вельмі шаноўны (ужыв. пры ветлівым афіцыйным звароце).

**ГЛЫБО́КІ**, -ая, -ае. **1.** Які мае вялікую глыбіню (у 1 знач.). *Глыбокая яма. Рыба плавала глыбока* (прысл.). **2.** Размешчаны ў сярэдзіне чаго-н. або аддалены ад чаго-н. *Г. тыл.* **3.** *перан.* Недаступны, скрыты. *Глыбокая тайна.* **4.** *перан.* Які дасягнуў высокай ступені праяўлення, мяжы ў сваім развіцці, моцны, поўны. *Глыбокія пачуцці. Глыбокія думкі. Глыбокая старасць. Глыбокая ноч.*

**ГЛЫНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., што* і *без дап.* **1.** *гл.* глытаць. **2.** Перакусіць або выпіць (разм.). *Глыні трохі перад адыходам.* ◊ **Глынуць гора (слёз)** (разм.) — перанесці многа цяжкасцей.

**ГЛЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што* і *без дап.* **1.** Пры дапамозе мышцаў горла праштурхоўваць што-н. у стрававод. *Г. ежу.* **2.** *перан.* Паглынаць, убіраць у сябе. *Г. кнігі. Г. слёзы. Г. паветра. Г. словы.* ‖ *аднакр.* **глыну́ць** -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **глыта́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **глыта́льны**, -ая, -ае.

**ГЛЫТО́К**, -тка́, *мн.* -ткі́, -ткоў, *м.* **1.** Аднаразовы рух мускулаў глытальных мышцаў пры глытанні. *Выпіць за два глыткі.* **2.** Колькасць вадкасці, якая глытаецца за адзін раз. *Г. вады.*

**ГЛЮ́ГА**, -і, *ДМ* глюзе, *мн.* -і, глюг, *ж.* (разм.). Дзюба ў драпежнай птушкі. *Груган звесіў глюгу.*

**ГЛЮГА́СТЫ**, -ая, -ае. З вялікай глюгай або падобны на глюгу. *Г. арол. Г. нос.* ‖ *наз.* **глюга́стасць**, -і, *ж.*

**ГЛЮКО́ЗА**, -ы, *ж.* Вінаградны цукар, які ўтрымліваецца ў пладах раслін і ягад. ‖ *прым.* **глюко́зны**, -ая, -ае.

**ГЛЯДА́Ч**, гледача́, *мн.* гледачы́, гледачо́ў, *м.* Той, хто глядзіць што-н., назірае за чым-н. *Тэатральны г.* ‖ *ж.* **гляда́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ГЛЯДЗЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прызначаны для гледачоў. *Глядзельная зала.* **2.** Тое, што і *аптычны* (у 1 знач.). *Глядзельная труба.*

**ГЛЯДЗЕ́ЦЦА**, -джу́ся, -дзі́шся, -дзі́цца; -дзі́мся, гледзіцёся, -дзя́цца; -дзі́ся; *незак.* **1.** *у што.* Глядзець на сваё адлюстраванне ў чым-н. *Г. ў люстэрка.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Успрымацца: пра фільм, пастаноўку і пад. *Спектакль глядзіцца з увагай.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра рэч, прадмет: добра выглядаць, дэманстраваць свае лепшыя якасці. *Касцюм добра глядзіцца.* ‖ *зак.* **паглядзе́цца**, -гляджу́ся, -глядзі́шся, -глядзі́цца; -глядзі́мся, -гледзіцёся, -глядзя́цца; -глядзі́ся (да 1 знач.).

**ГЛЯДЗЕ́ЦЬ**, -джу́, -дзі́ш, -дзі́ць; -дзі́м, гледзіце́, -дзя́ць; -дзі́; *незак.* **1.** *на каго-што* і *ў што.* Накіроўваць позірк, каб убачыць каго-, што-н. *Г. на неба. Г. на экран. Вокны глядзяць у агарод* (перан.: выходзяць на агарод). **2.** *каго-што.* Разглядаць, успрымаць, знаёміцца з кім-, чым-н. *Г. спектакль. Г. выстаўку карцін.* **3.** *каго-што.* Рабіць агляд, абследаванне. *Г. хворага.* **4.** *каго-што, за кім-чым* і *са злуч.* «каб». Даглядаць, турбавацца (разм.). *Г. дзяцей. Г. за парадкам. Г., каб усё было як трэба.* **5.** *на каго-што.* Браць прыклад з каго-н., лічыцца з кім-н. *Г. на старэйшых. Не глядзі на лежабокаў.* **6.** *на каго-што.* Так ці інакш адносіцца да каго-, чаго-н., мець сваю ацэнку. *Г. на рэчы проста.* **7.** Віднецца, паказвацца адкуль-н. *Беднасць глядзела з кожнага кутка хаты.* **8.** *заг.* **глядзі(це)!** *у знач. выкл.* Выражае: а) папярэджанне, перасцярогу або пагрозу. *Глядзіце, не спазніцеся!* б) здзіўленне, спалох. *Глядзі, што нарабіў гэты разбойнік!* в) ужыв. як знак спасылкі ў тэксце. *Глядзі наступную старонку.* **9.** *заг.* **глядзі́**, *2 ас. адз. цяпер.* **глядзі́ш**, *у знач. пабочн. сл.* Між тым, тым часам (разм.). *Глядзіш, і жніво надыдзе. За якую гадзіну, глядзіш, і грыбоў вядро.* **10.** *1 ас. цяпер.* **гляджу́ (глядзі́м)**, *у знач. пабочн. сл.* Як выяўляецца (разм.). *Гляджу, аўтобус ужо на прыпынку.* ◊ **Воўкам глядзець** (разм.) — таіць злосць на каго-н. **Глядзець з рук** *каго* або *чыіх* (разм., неадабр.) — не мець самастойнасці, быць у матэрыяльнай залежнасці ад каго-н. **Глядзець праз пальцы** (разм., неадабр.) — абыякава, несур'ёзна ставіцца да каго-, чаго-н., наўмысна не надаваць сур'ёзнай увагі каму-, чаму-н. **Глядзець праўдзе ў вочы** — цвяроза і правільна ўсё ўспрымаць. **Глядзець смерці ў вочы** — быць у вялікай небяспецы, блізка ад смерці. **Як у ваду глядзеў** (разм.) — быццам наперад ведаў. ‖ *зак.* **паглядзе́ць** -джу́, -дзі́ш, -дзі́ць; -дзі́м, -ледзіце́, -дзя́ць; -дзі́ (да 1—6 знач.). ‖ *аднакр.* **гля́нуць**, -ну, -неш, -не; глянь (да 1, 3, 6 і 7 знач.).

**ГЛЯК**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Нізкая гліняная пасудзіна з выпуклымі бакамі і вузкім горлам. ‖ *памянш.* **глячо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* ‖ *прым.* **гля́чны**, -ая, -ае.

**ГЛЯ́НЕЦ**, -нцу, *м.* Бляск начышчанай або адпаліраванай паверхні. *Навесці г.* (таксама перан.: канчаткова прывесці да ладу закончаную работу).

**ГЛЯНЦАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -цу́ецца; *незак.* Пакрывацца глянцам, начышчацца да бляску.

**ГЛЯНЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -ава́ны; *незак., што.* Пакрываць глянцам. *Г. паперу. Г. абутак.* ‖ *зак.* **наглянцава́ць**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны. ‖ *наз.* **глянцава́нне**, -я, *н.* і **глянцо́ўка**, -і, *ДМ* -цо́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **глянцава́льны**, -ая, -ае.

**ГЛЯНЦАВІ́ТЫ**, -ая, -ае. З глянцам, не матавы. *Глянцавітая папера.* ‖ *наз.* **глянцаві́тасць**, -і, *ж.*

**ГЛЯ́НЦАВЫ**, -ая, -ае. З наведзеным глянцам, бліскучы. *Глянцавая паверхня.*

**ГЛЯЦЫЁЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па гляцыялогіі.

**ГЛЯЦЫЯЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб прыродных ільдах ва ўсіх іх формах на паверхні Зямлі. ‖ *прым.* **гляцыялагі́чны**, -ая, -ае.

**ГМ**, *выкл.* (разм.). Выражае недавер'е, сумненне, іронію.

**ГМАХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Вялікі і высокі будынак.

**ГНАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., гно́іцца; *незак.* Выдзяляць гной. *Рана гноіцца.* ‖ *наз.* **гнае́нне**, -я, *н.*

**ГНАІ́ЦЬ**, гнаю, гно́іш, гно́іць; *незак., каго-што.* **1.** Прыводзіць у стан гніення. *Г. дабро.* **2.** *перан.* Доўгі час трымаць каго-н. у невыносна цяжкіх умовах для жыцця. *Г. у турме.* ‖ *зак.* **згнаі́ць**, згнаю, згно́іш, згно́іць; згно́ены. ‖ *наз.* **гнае́нне**, -я, *н.*

**ГНАЙНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Гнойны нарыў, крыніца выдзялення гною. *Разрэзаць г.* **2.** *перан.* Цэнтр якой-н. шкоднай грамадскай з'явы. ‖ *прым.* **гнайні́ковы**, -ая, -ае.

**ГНАСЕАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* У філасофіі: тэорыя пазнання. ‖ *прым.* **гнасеалагі́чны**, -ая, -ае.

**ГНА́ЦЦА**, ганю́ся, го́нішся, го́ніцца; гна́ўся, гна́лася; гані́ся; *незак., за кім-чым.* **1.** Бегчы следам, каб дагнаць або злавіць. *Г. за праціўнікам.* **2.** Імкнуцца да чаго-н., дамагацца каго-, чаго-н. *Г. за модай. Г. за доўгім рублём.*

**ГНАЦЬ**, ганю́, го́ніш, го́ніць; гнаў, гна́ла; гані́; *незак.* **1.** *каго-што.* Прымушаць рухацца ў якім-н. напрамку, прымусова адпраўляць. *Г. авечак. Г. звера* (праследаваць). *Г. лес па рацэ* (сплаўляць). *Паны гналі людзей на работу.* **2.** *каго-што.* Прымушаць хутка рухацца, ехаць на вялікай скорасці. *Фурман гнаў каня. Г. машыну.* **3.** *безас., што.* Вельмі хутка расці. *Бульбу гоніць у каліўе.* **4.** *што.* Здабываць пры дапамозе перагонкі. *Г. алей.* **5.** *што.* Рабіць, пастаўляць хутка, у вялікай колькасці. *Г. план. Г. прадукцыю.* **6.** *заг.* **гані(це).** Даваць (разм.). *Гані грошы.* **7.** *безас.* Моцна слабіць (разм.). *Жывот гоніць.* ‖ *наз.* **гон**, -у, *м.* (да 1 знач.) *і* **го́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (да 1, 2, і 4 знач.). *Г. звера.* ‖ *прым.* **го́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Гонныя галубы.*

**ГНАЯВІ́К**, гнаевіка́, *мн.* гнаевікі́, гнаевіко́ў, *м.* Жук сямейства пласцініставусых, які жыве ў гнаі.

**ГНАЯВЫ́** *гл.* гной.

**ГНЕ́ВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак., на каго-што* і *без дап.* Быць у стане гневу, абурацца. *Г. на мужа.*

**ГНЕ́ДЫ** *гл.* гняды.

**ГНЕЗДАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., гняздуе́цца; *незак.* Тое, што і *гняздзіцца* (у 1 знач.). ‖ *наз.* **гнездава́нне**, -я, *н.*

**ГНЕЗДАВЫ́** *гл.* гняздо.

**ГНЕЙС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Метамарфічная горная парода, якая складаецца з кварцу, палявога шпату і некаторых каляровых металаў. ‖ *прым.* **гне́йсавы**, -ая, -ае.

**ГНЕ́СЦІ** *і* **ГНЯСЦІ́**, гняту́, гняцеш, гняце́; гняцём, гнецяце́, гнятуць; гняці́; *незак., каго-што* і *без дап.* **1.** Прыціскаць сваім цяжарам. **2.** *перан.* Выклікаць непрыемнае пачуццё, мучыць. *Думкі гнятуць мяне.*

**ГНЕЎ**, гне́ву, *м.* Пачуццё моцнага абурэння, злосці. *Прыйсці ў г. Колькі гневу было за крытыку.*

**ГНЕ́ЎНЫ**, -ая, -ая. **1.** Ахоплены гневам. *Г. адміністратар.* **2.** Злосны, грозны. *Г. позірк.*

**ГНІ́ДА**, -ы, *ДМ* гні́дзе, *мн.* -ы, гнід, *ж.* Яйцо вошы ‖ *прым.* **гні́дны**, -ая, -ае.

**ГНІЕ́ННЕ**, -я, *н.* Працэс распаду арганічных рэчываў пад уздзеяннем мікраарганізмаў.

**ГНІ́ЛАСНЫ**, -ая, -ае. Які выклікае гніенне, выраблены гніеннем. *Гніласныя мікробы. Г. пах.* ‖ *наз.* **гні́ласнасць**, -і, *ж.*

**ГНІЛАТА́**, -ы́, *ДМ* -лаце́, *ж.* (разм.). Тое, што і *гніль.*

**ГНІЛЛЁ**, -я́, *н., зб.* (разм.). Гнілыя прадметы, гніль.

**ГНІЛУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Тое, што і *гніляк* (у 1 знач.). **2.** Гнілая, ляжалая груша.

**ГНІЛЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Сапсаваны гніеннем, спарахнелы, затхлы. *Гнілая салома. Гнілая вада.* **2.** Сыры, дажджлівы. *Гнілая восень.* **3.** *перан.* Непрыгодны, нездаровы. *Г. настрой.* ‖ *наз.* **гні́ласць**, -і, *ж.*

**ГНІЛЬ**, -і, *ж.* **1.** Што-небудзь гнілое, сапсаванае гніеннем. *У яблыку з'явілася г.* **2.** Назва многіх грыбковых або бактэрыяльных хвароб у раслін. *Мокрая г. бульбы.*

**ГНІЛЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Кусок спарахнелага, гнілога дрэва. **2.** *перан.* Хваравіты, слабы чалавек (разм.).

**ГНІ́СЦІ** *і* **ГНІЦЬ**, гнію́, гніе́ш, гніе́; гніём, гніяце́, гнію́ць; гніў, гніла́, -ло́; *незак.* **1.** Станавіцца гнілым пад уздзеяннем мікраарганізмаў. *Сена гніе.* **2.** *перан.* Цяжка жыць, гібець. *Г. у акопах* ‖ *зак.* **згні́сці** *і* **згніць**, -гнію́, -гніе́ш, -гніе́.

**ГНОЙ**, гно́ю, *М* гнаі́, *м.* **1.** Перапрэлая сумесь памёту і подсцілу свойскай жывёлы, якая ўжыв. для ўгнаення глебы. *Конскі г. Вывесці г. з хлява.* **2.** Вадкасць жоўтага або шэрага колеру з непрыемным пахам як прадукт гніення, запалення тканак жывога арганізма. ‖ *прым.* **гнаявы́**, -а́я, -о́е *і* **гно́йны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ГНОМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У заходнееўрапейскай міфалогіі: барадаты карлік, які ахоўвае падземныя скарбы. ‖ *памянш.* **гно́мік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ГНУ́ТКІ**, -ая, -ае. Здольны лёгка гнуцца, гібкі. *Г. дубец.* ‖ *наз.* **гну́ткасць**, -і, *ж.*

**ГНУ́ТЫ**, -ая, -ае. Зроблены шляхам выгінання. *Гнутая мэбля.*

**ГНУ́ЦЦА**, гну́ся, гне́шся, гне́цца; гнёмся, гняце́ся, гну́цца; гні́ся; *незак.* **1.** Прымаць дугападобную, выгнутую форму; схіляцца. *Дрэвы г. да зямлі. Чалавек гнецца ад цяжкай ношы.* **2.** Рабіцца няроўным; згінацца. *Ліст жалеза добра гнецца.* **3.** *перан.* Траціць стойкасць, паддавацца чыйму-н. уздзеянню. *Г. перад панам.* ‖ *зак.* **пагну́цца**, 1 і 2 ас. адз. звычайна не ўжыв., -гне́цца; -гнёмся, -гняце́ся, -гну́цца *і* **сагну́цца**, -гну́ся, -гне́шся, -гне́цца; -гнёмся, -гняце́ся, -гну́цца; -гні́ся.

**ГНУЦЬ**, гну, гнеш, гне; гнём, гняце́, гнуць; гні; гну́ты; *незак., каго-што.* **1.** Надаваць чаму-н. дугападобную, выгнутую форму. *Г. дугі.* **2.** *перан.* Падпарадкоўваць, гнясці. **3.** Нагінаць уніз, прыгінаць. *Вецер гне бярозу да зямлі.* **4.** *перан., без дап.* Весці гутарку, размову, накіроўваючы яе на дасягненне якой-н. мэты; схіляць (разм.). *Ведаю, куды ты гнеш.* ◊ **Гнуць на свой капыл** (разм., неадабр.) — рабіць па-свойму. **Гнуць сваю лінію** (разм.) — настойліва дамагацца чаго-н. **Гнуць спіну (горб)** (разм.) — 1) многа і цяжка працаваць на каго-н.; 2) пакланяцца, угоднічаць перад кім-н. **Гнуць у тры пагібелі** (разм.) — моцна, жорстка прыгнятаць. ‖ *зак.* **пагну́ць**, -гну́, -гне́ш, -гне́; -гнём, -гняце́, -гну́ць; -гні́; -гну́ты *і* **сагну́ць**, -гну́, -гне́ш, -гне́; -гнём, -гняце́, -гну́ць; -гні́; -гну́ты. ‖ *наз.* **гнуццё**, -я́, *н.* (да 1 знач.).

**ГНЮС**, -у, *м., зб.* Двухкрылыя насякомыя, машкара, якія смокчуць кроў чалавека і жывёл.

**ГНЯВІ́ЦЬ**, гняўлю́, гне́віш, гне́віць; *незак., каго.* Выклікаць гнеў. ◊ **Не гняві бога** (разм.) — дарэмна не наракай. **Што бога гнявіць; няма чаго бога гнявіць** (разм.) — няма падстаў крыўдзіцца на жыццё. ‖ *зак.* **угнявіць**, угняўлю́, угне́віш, угне́віць; угне́ваны. *У. суседку.*

**ГНЯДЫ́**, -а́я, -о́е *і* **ГНЕ́ДЫ**, -ая, -ае. Чырвона-рыжы з чорным хвастом і грывай (пра масць коней).

**ГНЯЗДЗІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., гняздзі́цца; *незак.* **1.** Віць гнёзды, жыць (пра птушак). *Ластаўкі гняздзяцца пад страхой.* **2.** *перан.* Мець прытулак, прыстанішча (пра людзей, жывёл). *Г. ў пакойчыку.* **3.** *перан.* Моцна трымацца, памнажацца (пра думкі). *У душы гняздзіліся трывожныя думкі.*

**ГНЯЗДО́**, -а́, *мн.* гнёзды *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) гнязды́, гнёзд *і* гнёздаў, *н.* **1.** У птушак, насякомых і паўзуноў: месца для жылля звычайна на перыяд кладкі яек і вывядзення дзіцянят. *Ластаўчына г. Асінае г.* (таксама перан.: пра прытулак злачынных людзей). **2.** Паглыбленне, куды што-н. устаўляецца (спец.). **3.** Група маладых раслін, грыбоў і пад., якія растуць разам. *Грузды і лісіцы раслі гнёздамі.* **4.** Укрытае месца для чаго-н. *Кулямётнае г.* **5.** Месца высеву двух або некалькіх зярнят, а таксама ўсходы гэтых зярнят (спец.). **6.** Група аднакарэнных вытворных слоў, размешчаных пры загалоўным слове ў слоўніку. ‖ *памянш.* **гняздзе́чка**, -а, *мн.* -і, -чак, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **гнездавы́**, -а́я, -о́е (да 1, 2, 5 і 6 знач.). *Гнездавая пасадка лесу. Гнездавое размяшчэнне слоў у слоўніку.*

**ГНЯЗДО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Месца, дзе гняздзяцца птушкі.

**ГНЯСЦІ́** *гл.* гнесці.

**ГО́ГАЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Вадаплаўная птушка падсямейства качыных. ◊ **Хадзіць гогалем** (разм.) — хадзіць важна, ганарыста. ‖ *прым.* **гагалі́ны**, -ая, -ае.

**ГО́ГАЛЬ-МО́ГАЛЬ**, го́галю-мо́галю, *м.* Сыры яечны жаўток, расцёрты з цукрам.

**ГО́ГАТ**, -у, *М* -гаце, *м.* **1.** Крык гусей. **2.** *перан.* Моцны, нястрымны смех (разм.).

**ГОД**, -а, *М* -дзе, *мн.* гады́, гадо́ў, *м.* **1.** Прамежак часу, за які Зямля робіць адзін абарот вакол Сонца. *Мінула два гады. Засушлівы г. Чатыры пары года: зіма, вясна, лета, восень.* **2.** Адрэзак часу, які ўключае ў сябе 12 каляндарных месяцаў. *Новы г.* (наступаючы год, а таксама дзень 1 студзеня). *Два гады ад нараджэння. Г. ад году* (з кожным годам). *Круглы г. Гадамі не сустракаемся.* **3.** Прамежак часу, у які праводзіцца цыкл якіх-н. работ, заняткаў. *Навучальны г. Фінансавы г.* **4.** *мн.* Доўгі перыяд, у які нешта адбываецца, якому што-н. уласціва. *Пасляваенныя гады. Гады*

*маладосці.* **5.** *мн.* У спалучэнні з парадк. ліч.: адрэзак часу ў межах дзесяцігоддзя. *Васьмідзясятыя гады дваццатага стагоддзя.* **6.** *мн.* Узрост. *Ён ужо ў гадах* (пажылы, стары). *Не тыя гады. Не па гадах.* **7.** Прамежак часу, на працягу якога адбываецца абарот якой-н. планеты вакол Сонца. *Г. Марса.* ○ **Высакосны год** — кожны чацвёрты год, які мае ў лютым не 28, а 29 дзён. **Светлавы год** — адзінка адлегласці, роўная шляху, які праходзіць прамень святла за адзін трапічны год. **Трапічны год** — прамежак часу, за які Сонца завяршае адзін цыкл змен пор года (напр.: ад аднаго вясенняга раўнадзенства да наступнага і пад.). ◊ **Гады ў рады** (разм.) — вельмі рэдка (сустракацца, бачыцца). **З году ў год** (разм.) — пастаянна, на працягу некалькіх гадоў. ‖ *ласк.* **гóдзік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 2 знач.) *і* **гадóк**, -дкá, *мн.* -дкí, -дкóў, *м.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **гадавы́**, -áя, -óе (да 1—3 знач.). *Гадавая справаздача. Г. план.*

**ГÓДЗЕ**, *безас., у знач. вык.* Хопіць, даволі. *Г. загараць.*

**ГÓДНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* годны. **2.** Неабходныя маральныя якасці чалавека, а таксама ўсведамленне гэтых якасцей. *Г. працоўнага чалавека.* **3.** Званне (разм.). *Надаць г. народнага артыста Беларусі.*

**ГÓДНЫ**, -ая, -ае; -дзен, -дна. Прыгодны для чаго-н., для якіх-н. мэт. *Г. для страявой службы.* ‖ *наз.* **гóднасць**, -і, *ж.* *Тэрмін годнасці лякарства.*

**ГÓЙДАННЕ** *гл.* гайдаць.

**ГÓЙДАЦЦА** *гл.* гайдацца.

**ГÓЙДАЦЬ** *гл.* гайдаць.

**ГÓЙСАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае *і* **ГАЙСÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* (разм.). Хутка і мітусліва рухацца, перамяшчацца; бегаць, раз'язджаць у пошуках каго-, чаго-н. *Г. па магазінах.* ‖ *наз.* **гóйсанне**, -я, *н. і* **гайсáнне**, -я, *н.*

**ГОЛ**, -а, *мн.* галы́, галóў, *м.* У спартыўных гульнях: забіты або прапушчаны мяч, шайба і пад., а таксама ачко, якое каманда выйграе пры пападанні мяча ў вароты праціўніка. *Забіць г.* ‖ *прым.* **галявы́**, -áя, -óе. *Г. момант ля варот.*

**ГОЛАГАЛÓВЫ**, -ая, -ае. **1.** З голай, непакрытай галавой. *Г. хлопчык.* **2.** З абстрыжанай ці лысай галавой.

**ГÓЛАД**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** Вострае адчуванне патрэбы ў ежы, а таксама працяглае недаяданне. *Памерці з голаду.* **2.** Адсутнасць ці недахоп прадуктаў харчавання ў выніку неўраджаю, засухі, вайны і пад. *Вайна нясе г. і разбурэнні.* **3.** *перан.* Увогуле недахоп чаго-н. *Кніжны г. Г. на культурныя мерапрыемствы.* ◊ **Марыць голадам** — даводзіць да знямогі.

**ГÓЛАС**, -у, *мн.* галасы́, галасóў, *м.* **1.** Гукі, якія ўтвараюцца ваганнем галасавых звязак, што знаходзяцца ў горле. *Ля рэчкі чуліся вясёлыя галасы. Высокі г.* **2.** Асобная самастойная партыя многагалосага твора вакальнай і інструментальнай музыкі. *Раманс для двух галасоў.* **3.** Меркаванне, выказванне, думка. *Падаць г.* (выказаць сваю думку). *Прыслухоўвацца да голасу мас.* **4.** Права заяўляць сваё меркаванне пры вырашэнні дзяржаўных пытанняў. *Не хапіла аднаго голасу на выбарах. Галасы выбаршчыкаў. Падлік галасоў. Рашаючы г.* **5.** Клавіш музычнага інструмента (разм.). *У акардэоне сапсаваліся галасы.* ◊ **На ўвесь голас** — гучна, на поўную сілу. **У адзін голас** — дружна, адзінадушна. ‖ *памянш.* **галасóк**, -скá, *мн.* -скí, -скóў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **галасавы́**, -áя, -óе (да 1 знач.). *Галасавыя звязкі.*

**ГÓЛАСНЫ**, -ая, -ае. Гучны, звонкі. *Галоснае чытанне.*

**ГÓЛЛЕ** *гл.* галлё.

**ГÓЛУБ**, -а, *мн.* галубы́, галубóў, *м.* Птушка сямейства галубіных пераважна з шаравата-блакітным ці белым апярэннем і вялікім зобам. *Дзікі г. Г. міру* (відарыс белага голуба як сімвал міру). ‖ *памянш.* **галубóк**, -бкá, *мн.* -бкí, -бкóў, *м.* ‖ *прым.* **галубі́ны**, -ая, -ае. *Галубіныя гнёзды. Галубіная пошта. Галубіная душа* (перан.).

**ГОЛУБАГАДÓВЕЦ**, -дóўца, *мн.* -дóўцы, -дóўцаў, *м.* Чалавек, які займаецца голубагадоўляй.

**ГОЛУБАГАДÓЎЛЯ**, -і, *ж.* Развядзенне і дрэсіроўка галубоў. ‖ *прым.* **голубагадóўчы**, -ая, -ае.

**ГÓЛЫ**, -ая, -ае; гол, -а. **1.** Не апрануты, не прыкрыты адзеннем. *Голая спіна.* **2.** Без расліннага або валасяного покрыва. *Г. чэрап. Голыя дрэвы.* **3.** Нічым не пакрыты, не прыкрыты. *Голыя сцены. Спаць на голым ложку.* **4.** *перан.* Узяты сам па сабе, без тлумачэнняў, без дадаткаў. *Голыя лічбы. Голыя факты.* **5.** Без прымесей, чысты. *Г. пясок.* **6.** *перан.* Бедны. *Балявалі, пакуль голы сталі* (прыказка). ◊ **Гол як сакол** — вельмі бедны, які нічога не мае. **Голы як бізун** — пра вельмі беднага чалавека. **Голы як бубен** (разм.) — пра голае, без расліннасці месца.

**ГОЛЬФ**, -а, *м.* Гульня ў мяч, які клюшкай заганяюць у ямку, пераадольваючы рад штучных перашкод.

**ГÓЛЬФЫ**, -аў. **1.** Кароткія штаны з манжэтамі, якія зашпільваюцца пад каленам. **2.** *адз.* гольф, -а, *м.* Панчохі да калена.

**ГÓМАН**, -у, *м.* **1.** Гучная невыразная гаворка некалькіх чалавек. *На вуліцы стаяў г.* **2.** *перан.* Шум, гул, гудзенне. *Птушыны г.*

**ГОН** *гл.* гнаць.

**ГÓНАР**, -у, *м.* **1.** Грамадская або маральная годнасць, тое, што выклікае ўсеагульную павагу. *Справа гонару.* **2.** Высакамернасць, фанабэрыстасць. *Чалавек з гонарам.*

**ГОНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ударны музычны інструмент у выглядзе металічнага дыска, ужыв. таксама для падачы сігналаў. *Ударыць у г.*

**ГÓНІ**, -ей. **1.** Вялікая доўгая ніва. *Жнеі дажыналі г.* **2.** *перан.* Прастор, зямля (паэт.).

**ГÓНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* **1.** *гл.* гнаць. **2.** звычайна *мн.* (**гóнкі**, -нак). Спаборніцтва ў хуткасці (на аўтамабілях, лыжах і пад.). *Аўтамабільныя гонкі. Лыжная г.* ○ **Гонка ўзбраення** — палітычнае супрацьстаянне некалькіх дзяржаў за перавагу ў галіне ўзбраення. ‖ *прым.* **гóначны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Г. аўтамабіль.*

**ГÓНКІ**, -ая, -ае. **1.** Хуткі, імклівы ў руху. *Гонкая плынь ракі. Г. човен.* **2.** Высокі і роўны (пра дрэвы). *Гонкія сосны.* ‖ *наз.* **гóнкасць**, -і, *ж.*

**ГÓННЫ** *гл.* гнаць.

**ГÓНТА**, -ы, *ДМ* -нце, *мн.* -ы, -аў, *ж.*, а таксама *зб.* Дахавы матэрыял у форме невялікіх дошчачак, востра саструганых з аднаго боку і з пазам — з другога. *Ставіць хату пад гонтай. Злазь з даху, не псуй гонты* (прымаўка: не бярыся не за сваю справу). ‖ *прым.* **гóнтавы**, -ая, -ае *і* **гантóвы**, -ая, -ае.

**ГÓНЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Шпаркі ў бегу, прывучаны гнаць звера. *Г. сабака.* **2.** *у знач. наз.* **гóнчы**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Пра сабаку такой пароды. *Брэх гончых.*

**ГÓНШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Удзельнік спартыўных гонак. ‖ *ж.* **гóншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **гóншчыцкі**, -ая, -ае.

**ГОП**, *выкл.* Ужыв. са знач. дзеяслова гопнуць, гопаць. *Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш* (прыказка).

**ГÓПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Скакаць, падскокваць. **2.** З шумам падаць. ‖ *аднакр.* **гóпнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **гóпанне**, -я, *н.*

**ГÓРА**, -а, *н.* **1.** Глыбокі жаль, смутак. *Захварэць з г.* **2.** Тое, што і няшчасце. *У мяне вялікае г.* **3.** Жыццёвыя няўдачы, мукі, нястача. *Г. не знаць. Цярпець г.* ◊ **Глынуць гора** (разм.) — перажыць многа цяжкасцей. **Заліць гора** (разм.) — напіцца з гора. **З горам папалам** (разм.) — з вялікай цяжкасцю.

**ГОРА-...** (іран.). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. дрэнны, незадачлівы, напр.: *гора-кіраўнік, гора-паляўнічы.*

**ГÓРАД**, -а, *мн.* гарады́, гарадóў, *м.* **1.** Буйны населены пункт, адміністрацыйны, прамысловы, гандлёвы і культурны цэнтр. *Сталічны г. Г. на Дзвіне. Жыць за горадам.* **2.** Населенае месца, абгароджанае і ўмацаванае сцяной (гіст.). *Старажытны славянскі г.* **3.** У розных рухомых гульнях (напр., лапта, гарадкі) месца, лагер кожнай каманды. ‖ *памянш.* **гарадóк**, -дкá, *мн.* -дкí, -дкóў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **гарадскí**, -áя, -óе. *Гарадская гаспадарка. Гарадскія будынкі.*

**ГОРАДАБУДАЎНÍК**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Архітэктар, спецыяліст па будаўніцтве і планіроўцы гарадоў.

**ГОРАДАБУДАЎНÍЦТВА**, -а, *н.* Гарадское будаўніцтва. ‖ *прым.* **горадабудаўнíчы**, -ая, -ае.

**ГÓРАН**, -рна, *мн.* -рны, -рнаў, *м.* **1.** Кавальская печ з мяхамі і паддувалам для

го-, чаго-н., адчуваць агіду. *Ён нічым не грэбуе.* ‖ *зак.* **пагрэ́баваць**, -бую, -буеш, -буе; -буй. ‖ *наз.* **грэ́байванне**, -я, *н.*

**ГРЭ́БАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Корпацца. *Г. на агародзе.*

**ГРЭ́БАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Капа́ць (рукамі, пальцамі і пад.). *Г. зямлю.*

**ГРЭ́БЕНЬ**, -я, *мн.* грабяні́ *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) грэ́бені, грабянёў, *м.* **1.** Пласцінка з радам зубцоў для расчэсвання валасоў або закольвання і змацавання жаночай прычоскі. **2.** Прыстасаванне такой формы, ужыв. ў розных галінах вытворчасці. *Прадзільны г. Фарміраваць грабяні пад пасадку кукурузы.* **3.** Мясісты нараст на галаве некаторых птушак. *Г. пеўня.* **4.** *перан.* Вяршыня чаго-н. *Г. хвалі. Горны г.* ‖ *прым.* **грабе́нны**, -ая, -ае (да 1—3 знач.), **грабянёвы**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.) *і* **грабнявы́**, -а́я, -о́е (да 4 знач.). *Грабеннае прадзенне. Грабенны (грабянёвы) вырост. Грабнявыя культуры.* ‖ *памянш.* **грабе́ньчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 і 3 знач.); *прым.* **грабе́ньчыкавы**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**ГРЭ́БЛІВЫ**, -ая, -ае. Які гадліва адносіцца да неахайнасці і ўсюды яе падазрае. *Г. чалавек.* ‖ *наз.* **грэ́блівасць**, -і, *ж.*

**ГРЭ́БЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Насціл з бярвення ці галля для праезду па гразкім месцы; гаць. ‖ *памянш.* **грэ́белька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.*

**ГРЭ́БЦІ**, грабу́, грабе́ш, грабе́; грабём, грабяце́, грабу́ць; гроб, грэ́бла; грабі́; *незак.* **1.** Збіраць у адно месца, зграбаць граблямі, віламі і пад. *Г. сена.* **2.** Працаваць вёсламі, плывучы ў лодцы. **3.** Разграбаць, капаць. *Г. пясок.* **4.** *перан.* З прагнасцю браць, захопліваць сабе. *Г. дабро. Кожная курыца пад сябе грабе* (з нар.).

**ГРЭ́БЦІСЯ**, грабу́ся, грабе́шся, грабе́цца; грабёмся, грабяце́ся, грабу́цца; гро́бся, грэ́блася; грабі́ся; *незак.* Капацца, разграбаць што-н. пальцамі, лапамі. *Г. ў пяску.*

**ГРЭ́ЙДАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Машына для рыцця канаў, выраўноўвання палатна грунтавых дарог. **2.** Дарога, пракладзеная пры дапамозе такой машыны (разм.). ‖ *прым.* **грэ́йдарны**, -ая, -ае.

**ГРЭЙПФРУ́Т**, -а, *М* -ру́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пладовае дрэва сямейства цытрусавых, а таксама гаркавата-салодкі плод гэтага дрэва. ‖ *прым.* **грэйпфру́тавы**, -ая, -ае.

**ГРЭКА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. грэчаскі, напр.: *грэка-лацінскі, грэка-балгарскі.*

**ГРЭ́КІ**, -аў, *адз.* грэк, -а, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Грэцыі. ‖ *ж.* **грача́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **грэ́часкі**, -ая, -ае.

**ГРЭ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Прыстасаванне для абагравання, саграванння. *Электрычная г. Гумавая г.* ‖ *прым.* **грэ́лачны**, -ая, -ае.

**ГРЭНАДЗЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У царскай і некаторых сучасных арміях: ваеннаслужачы некаторых прывілеяваных пяхотных ці кавалерыйскіх палкоў, першапачаткова прызначаных для штурму варожых умацаванняў. *Рота грэнадзёраў.* ‖ *прым.* **грэнадзёрскі**, -ая, -ае.

**ГРЭ́НКІ**, -нак, *адз.* грэ́нка, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Падсмажаныя лустачкі хлеба, звычайна белага. *Суп з грэнкамі.*

**ГРЭХ**, граху́ *і* грэ́ху, *Т* граxо́м *і* грэ́хам, *мн.* грахі́, -о́ў, *м.* **1.** У веруючых: парушэнне правіл рэлігійнай маралі. **2.** *перан.* Заганны ўчынак. *Грахі мінулых дзён.* **3.** *у знач. вык.* Грэшна, нядобра (разм.). *Г. так гаварыць.* ◊ **Далей ад граху** (разм.) — пра нежаданне ўцягвацца ў непрыемную гісторыю. **З грахом папалам** (разм.) — з вялікімі цяжкасцямі. **І смех і грэх** (разм.) — і смешна, і сумна. **Няма чаго граху таіць** (разм.) — трэба прызнацца. **Як на грэх** (разм.) — як на зло, на няшчасце.

**ГРЭХАПАДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** У міфічным біблейскім паданні: парушэнне першымі людзьмі, Адамам і Евай, запаветаў Бога. **2.** Учынак, звязаны з парушэннем грамадскіх норм паводзін, маралі і пад. (кніжн.).

**ГРЭ́ЦКІ**[1] *гл.* грэчка.

**ГРЭ́ЦКІ**[2], -ая, -ае. У некаторых назвах: грэчаскі. *Г. арэх.*

**ГРЭ́ЦЦА**, грэ́юся, грэ́ешся, грэ́ецца; *незак.* **1.** Саграваць сябе, сваё цела. *Г. на печы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Рабіцца цёплым, гарачым пад уздзеяннем агню, трэння. *Вада грэецца. Піла грэецца.*

**ГРЭЦЫ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Слова або выраз у якой-н. мове, запазычаны з грэчаскай мовы.

**ГРЭЦЬ**, грэ́ю, грэ́еш, грэ́е; грэ́ты; *незак.* **1.** Перадаваць сваю цеплыню. *Сонца грэе.* **2.** Рабіць цёплым, награваць. *Г. малако.* **3.** Захоўваць цеплыню, засцерагаць ад холаду. *Кажух грэе добра.* **4.** *перан.* Супакойваць, суцяшаць. *Г. сэрца. Грэюць матуліны вочы.* ◊ **Грэць рукі на чым** (разм., неадабр.) — нажывацца несумленным спосабам.

**ГРЭ́ЧАСКІ** *гл.* грэкі.

**ГРЭ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* Травяністая меданосная расліна сямейства грэчкавых, а таксама зерне гэтай расліны, з якога робяць крупы і муку. ‖ *прым.* **грэ́чкавы**, -ая, -ае *і* **грэ́цкі**, -ая, -ае. *Грэчкавы мёд. Сямейства грэчкавых* (наз.). *Грэцкія крупы.*

**ГРЭ́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Грэшны чалавек. ‖ *ж.* **грэ́шніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ГРЭ́ШНЫ**, -ая, -ае. Які многа награшыў або поўны граху, грахоў. *Г. чалавек. Грэшныя думкі.*

**ГУА́НА**, *нескл., н.* Памёт дзікіх птушак, які скарыстоўваецца на ўгнаенне.

**ГУА́Ш**, -ы, *ж.* Непразрыстая фарба, а таксама карціна, малюнак, выкананыя гэтай фарбай. ‖ *прым.* **гуа́шавы**, -ая, -ае.

**ГУ́БА**, -ы, *мн.* -ы, губ, *ж.* Тоўсты, падобны на капыт грыб, які паразітуе на дрэвах і выклікае гніенне драўніны. ‖ *прым.* **гу́бавы**, -ая, -ае.

**ГУБА́**[1], -ы́, *мн.* гу́бы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) губы́, губ, *Д* -а́м, *ж.* Скурна-мускульная рухомая складка, якая ўтварае край рота. *Верхняя г. Сціснуць губы. Кусаць губы* (таксама перан.: выражаць злосць, незадавальненне). ‖ *памянш.* **гу́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* ‖ *прым.* **губны́**, -а́я, -о́е.

**ГУБА́**[2], -ы́, *мн.* гу́бы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) губы́, губ, *Д* -а́м, *ж.* Назва марскіх заліваў і бухт на поўначы Расіі. *Анежская г.*

**ГУБА́**[3], -ы́, *ж.* (разм.). Гаўптвахта. *Пасадзіць на губу.*

**ГУБА́СТЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *губаты.*

**ГУБА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). З вялікімі тоўстымі губамі[1].

**ГУБАШЛЁП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., груб.). Разява, расцяпа.

**ГУБЕРНА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Начальнік якой-н. тэрытарыяльнай адзінкі ў некаторых краінах. ‖ *прым.* **губерна́тарскі**, -ая, -ае.

**ГУБЕ́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расіі ў розныя часы. ◊ **І пайшла пісаць губерня** (разм.) — усё прыйшло ў рух, пачаўся перапалох. ‖ *прым.* **губе́рнскі**, -ая, -ае.

**ГУБІ́ЦЬ**, гублю́, гу́біш, гу́біць; *незак., каго-што.* **1.** Рабіць непрыгодным, нішчыць. *Г. лес.* **2.** Прыводзіць да гібелі, забіваць. *Г. звяроў.* **3.** *перан.* Марна, дарэмна траціць (час, сродкі, сілы і пад.). *Г. лепшыя гады.* ‖ *зак.* **пагубі́ць**, -гублю́, -гу́біш, -гу́біць; -гу́блены.

**ГУ́БКА**[1] *гл.* губа́[1].

**ГУ́БКА**[2], -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* **1.** Мнагаклетачная беспазваночная марская жывёліна тыпу прасцейшых. **2.** Мяккі наздраваты касцяк гэтай жывёліны, які добра ўбірае вільгаць і служыць для мыцця, а таксама падобны выраб з гумы і іншых матэрыялаў. *Мыцца губкай.* ‖ *прым.* **гу́бкавы**, -ая, -ае.

**ГУ́БКА**[3], -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* (гіст.). Мера нітак, прыгатаваных на аснову для ткання палатна. *Выткала сем губак палатна.*

**ГУБКАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Порысты, падобны на губку[2]. *Губкаватая рызіна.*

**ГУБЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* **1.** Прападаць, знікаць. *Дробныя рэчы часта губляюцца.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Рабіцца непрыметным, нябачным. *Сцежка гублялася ў бярэзніку.* **3.** *перан.* Траціць самавалоданне, хваляваццa. *Ён не губляўся ні пры якіх абставінах.* ‖ *зак.* **згубі́цца**, згублю́ся, згу́бішся, згу́біцца.

**ГУБЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., каго-што.* **1.** Пазбаўляцца чаго-н., пакідаючы невядома дзе па няўважлівасці. *Г. пальчаткі.* **2.** *перан.* Перастаць мець што-н., валодаць чым-н. *Г. надзею. Г. слых.* **3.** Марна траціць што-н. *Дарэмна г. час.* **4.** Збівацца з чаго-н., не заўважаць чаго-н. *Г. сцежку.* ‖ *зак.* **згубі́ць**, згублю́, згу́біш,

згу́біць; згу́блены. *Лепей з разумным з., чым з дурным знайсці* (прыказка).

**ГУБНЫ́** *гл.* губа[1].

**ГУБЧА́ТЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *губкаваты.*

**ГУВЕРНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Выхавацель дзяцей у сям'і, звычайна іншаземец. ‖ *прым.* **гувернёрскі**, -ая, -ае. ‖ *ж.* **гувернáнтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так; *прым.* **гувернáнцкі**, -ая, -ае.

**ГУГЕНО́ТЫ**, -аў, *адз.* -но́т, -а, *м.* Французскія пратэстанты 16—17 стст., якіх праследавалі каталіцкая царква і ўрад.

**ГУГНЯ́ВІЦЬ**, -ня́ўлю, -ня́віш, -ня́віць; *незак.* Гаварыць у нос.

**ГУГНЯ́ВЫ**, -ая, -ае. Які гаворыць у нос. ‖ *наз.* **гугня́васць**, -і, *ж.*

**ГУ-ГУ́**. У выразе: **ні гу-гу**, *у знач. вык.* (разм.) — маўчаць, не гаварыць ні слова або просьба ці загад маўчаць. *Пра гэта — нікому ні гу-гу.*

**ГУД**, -у, *М* -дзе, *м.* Працяжны аднатонны гук.

**ГУДЗЕ́ЦЬ**, -джу́, -дзі́ш, -дзі́ць; -дзі́м, -дзіце́, -дзя́ць; -дзі́; *незак.* Тое, што і *гусці.* ‖ *зак.* **прагудзе́ць**, -джу́, -дзі́ш, -дзі́ць; -дзі́м, -дзіце́, -дзя́ць; -дзі́. ‖ *наз.* **гудзе́нне**, -я, *н.*

**ГУДО́К**, -дка́, *мн.* -дкі́, -дко́ў, *м.* **1.** Механічны свісток, які падае сігналы. *Паравозны г.* **2.** Працяжны аднастайны гук свістка ці сірэны. *Выходзіць па гудку.* ‖ *прым.* **гудо́чны**, -ая, -ае.

**ГУДРАНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак., што.* Пакрыць (пакрываць) гудронам. *Г. шашу.* ‖ *зак.* таксама **загудрані́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**ГУДРО́Н**, -у, *м.* Чорнае смалістае рэчыва, якое атрымліваецца пры перагонцы нафты. ‖ *прым.* **гудро́нны**, -ая, -ае.

**ГУЖ**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Скураная ці вераўчаная пятля ў хамуце, пры дапамозе якой прымацоўваюць аглоблі да дугі. *Узяўся за г. — не кажы, што не дуж* (прыказка). ‖ *прым.* **гужавы́**, -а́я, -о́е.

**ГУЖАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* гуж. **2.** Які выконваецца жывой цяглавай сілай. *Г. транспарт.*

**ГУ́ЖАМ**, *прысл.* **1.** На калёсах ці санях. *Вазіць лес г.* **2.** Адзін за адным. *Па вузкай сцяжынцы ўсе ішлі г.*

**ГУЗ**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Жаўлак ад удару або нараст на целе чалавека, жывёлы; нагогул пукатая няроўнасць. *Набіць г. на лбе. На спіне ў каровы гузы.* ‖ *прым.* **гузавы́**, -а́я, -о́е.

**ГУЗАВА́ТЫ**, -ая, -ае. З гузамі і пукатасцямі. *Гузаватая асіна.* ‖ *наз.* **гузава́тасць**, -і, *ж.*

**ГУЗА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *гуз.*

**ГУЗА́СТЫ**, -ая, -ае. З вялікімі гузамі. *Г. дуб.* ‖ *наз.* **гуза́стасць**, -і, *ж.*

**ГУ́ЗІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Зашпілька для адзення, звычайна ў выглядзе кружка. ‖ *памянш.* **гу́зічак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* ‖ *прым.* **гу́зікавы**, -ая, -ае.

**ГУК**, -а *і* -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** -у. Вагальныя рухі часцінак паветра або іншага асяроддзя, якія мы ўспрымаем органамі слыху. *Хуткасць гуку. Г. стрэлу. Музычны г.* (у адрозненне ад шуму). **2.** -а. Найменшы членараздзельны элемент чалавечай мовы. *Гукі беларускай мовы.* ◊ **Ні гуку** — пра поўнае маўчанне; не гавары, маўчы. ‖ *прым.* **гукавы́**, -а́я, -о́е.

**ГУКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. гук, гукавы, напр.: *гукалакатар, гукапеленгатар, гукасігнальны, гукаўспрымальны, гукавымаўленне, гуказапісны, гукамантаж, гукарэжысёр, гукарэжысура, гукапаглынальнік.*

**ГУКААПЕРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па запісе гукаў (у 1 знач.). ‖ *прым.* **гукаапера́тарскі**, -ая, -ае.

**ГУКААФАРМІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Спецыяліст па шумавым афармленні спектакля. ‖ *прым.* **гукаафармі́цельскі**, -ая, -ае.

**ГУКАЗА́ПІС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Запіс спецыяльнымі апаратамі гаворкі або музыкі на плёнку, пласцінку і пад., а таксама плёнка, пласцінка з такім запісамі. *Студыя гуказапісу.*

**ГУКАЗДЫМА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прыбор для перадачы запісу грамафонных пласцінак на рэпрадуктар радыёпрыёмніка; адаптар.

**ГУКАІЗАЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Сукупнасць сродкаў і мер, якія забяспечваюць непранікальнасць гукаў і шуму ў памяшканне. ‖ *прым.* **гукаізаляцы́йны**, -ая, -ае.

**ГУКАМАСКІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* Тэхнічныя прыёмы, звязаныя з памяншэннем чутнасці гукаў артылерыйскіх выстралаў. ‖ *прым.* **гукамаскіро́вачны**, -ая, -ае.

**ГУКАНЕПРАНІКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які не прапускае гукаў, шумаў, ізаляваны ад іх. *Гуканепранікальная камера.* ‖ *наз.* **гуканепраніка́льнасць**, -і, *ж.*

**ГУКА́ННЕ**, -я, *н.* (разм.). **1.** *гл.* гукаць. **2.** Перагукванне, каб сабрацца разам. ○ **Гуканне вясны** — старажытны язычніцкі вясновы абрад, які сімвалізуе абуджэнне прыроды пасля працяглай зімы.

**ГУКАПЕРАЙМА́ННЕ**, -я, *н.* Імітацыя голасам або тэхнічнымі сродкамі прыроднага гучання (напр., ква-ква, ку-ку, мяўмяў), а таксама слова, якое ўтварылася шляхам такога пераймання (напр., квакаць, кукаваць, мяўкаць). ‖ *прым.* **гукаперайма́льны**, -ая, -ае.

**ГУ́КАПІС**, -у, *м.* (спец.). Гукавыя паўторы для ўзмацнення мілагучнасці і сэнсавай выразнасці мастацкага маўлення.

**ГУКАПРАВО́ДНЫ**, -ая, -ае. Які прапускае гукі. ‖ **гукаправо́днасць**, -і, *ж.*

**ГУКАПРАНІКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які лёгка прапускае гукі, шумы. *Гукапранікальныя сцены.* ‖ *наз.* **гукапраніка́льнасць**, -і, *ж.*

**ГУКАРА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (спец.). Рад музычных гукаў, якія размешчаны ў якой-н. паслядоўнасці.

**ГУКАСПАЛУЧЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Спалучэнне гукаў мовы.

**ГУКАЎЛО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прыбор для ўлоўлівання шуму самалёта, падводнай лодкі і пад.

**ГУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Клікаць, зваць, падзываць. — *Мама! Ідзі, — гукае дачка.* **2.** Гучна гаварыць, крычаць. ‖ *аднакр.* **гукну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **гука́нне**, -я, *н.*

**ГУЛ**, -у, *м.* Аддалены працяжны шум. *Падземны г.*

**ГУЛЕ́Ц**, -льца́, *мн.* -льцы́, -льцо́ў, *м.* (разм.). Удзельнік якой-н. гульні (спартыўнай, картачнай і пад.), ігрок.

**ГУ́ЛІ**, -яў (разм.). **1.** Гулянне, забава. *Пайсці на г.* **2.** Марнае правядзенне часу. *Г. не аднаго ў лапці абулі* (прыказка).

**ГУ́ЛКІ**, -ая, -ае. **1.** Выразны па гуку, чутны здалёк. *Гулкія крокі.* **2.** З моцным рэзанансам. *Гулкая зала.* ‖ *наз.* **гу́лкасць**, -і, *ж.*

**ГУЛЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Жартаўлівы, вясёлы, гарэзлівы. *Г. настрой. Гуллівае дзіця.* ‖ *наз.* **гуллі́васць**, -і, *ж.*

**ГУЛЬБА́**, -ы́, *ж.* (разм.). Гулянка, папойка.

**ГУ́ЛЬДЭН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грашовая адзінка Нідэрландаў да 2002 г., а таксама залатая, а пасля сярэбраная манета ў некаторых еўрапейскіх краінах у 14—19 стст.

**ГУ́ЛЬМА**. У выразе: **гульма гуляць** — марна траціць час, зусім нічога не рабіць.

**ГУЛЬНУ́ЦЬ** *гл.* гуляць.

**ГУЛЬНЯ́**, -і́, *мн.* гу́льні *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) гульні́, -яў, *ж.* **1.** *гл.* гуляць. **2.** Занятак з мэтай забавы, адпачынку, звычайна па якіх-н. правілах. *Г. ў шахматы. Спартыўныя гульні.* **3.** Камплект неабходных прадметаў для такіх заняткаў. *Дзіцячая настольная г.* **4.** Наўмысныя тайныя дзеянні для дасягнення якой-н. мэты. *Небяспечная г. Двайная г.* ○ **Алімпійскія гульні** — міжнародныя спаборніцтвы па асноўных відах спорту, якія праводзяцца раз у чатыры гады. ◊ **Гульня слоў** — дасціпны, каламбурны выраз. ‖ *прым.* **гульнявы́**, -а́я, -о́е (да 2 і 3 знач.).

**ГУЛЬТА́Й**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Лянівы чалавек, лодар. ‖ *ж.* **гульта́йка**, -і, *ДМ* -та́йцы, *мн.* -і, -та́ек. ‖ *прым.* **гульта́йскі**, -ая, -ае.

**ГУЛЬТАЯВА́ЦЬ**, -таю́ю, -таю́еш, -таю́е; -тaúй; *незак.* Ухіляцца ад работы; лодарнічаць.

**ГУЛЯ́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ля́цы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -ля́к (разм.). Той, хто нічога не робіць і разгульна жыве.

**ГУЛЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Вечарынка з пачастункам або вясёлае правядзенне часу ў кампаніі.

**ГУЛЯ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* гуляць. **2.** Масавае свята пад адкрытым небам. *Народнае г.*

**ГУЛЯ́НЫ**, -ая, -ае. Які ўжываўся ў гульні. *Гуляная калода карт.*

**ГУЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* **1.** *з кім-чым* і *без дап.* Забаўляцца, пацяшацца (звычайна пра дзяцей). *Г. з катом. Г. у жмуркі. Дзеці гуляюць у кубікі. Зробіш урокі — можаш г.* **2.** Хадзіць адпачываючы; прагульвацца. *Г. у парку.* **3.** *у што.* Праводзіць час за якім-н. спартыўным заняткам. *Г. у футбол.* **4.** *перан.* Перамяшчацца ў розных напрамках; распаўсюджвацца. *Па хаце гуляе вецер. За акном гуляе завіруха. Па твары гуляла ўсмешка.* **5.** Мець выхадны дзень, не працаваць. *Г. цэлы дзень.* **6.** Быць свабодным, незанятым (пра зямлю, рэчы і пад.). *Агарод гуляе.* **7.** Весяліцца (з танцамі, песнямі, музыкай). *Г. да ночы. Г. вяселле.* **8.** *з кім.* Быць у блізкіх адносінах; любіцца (разм.). ◊ **Гуляць з агнём** — брацца за рызыкоўную справу, не думаючы аб выніках. **Гуляць у маўчанку** (разм., неадабр.) — ухіляцца ад размовы. || *зак.* **пагуля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **згуля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 3 знач.). || *аднакр.* **гульну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 7 знач.). || *наз.* **гульня́**, -і́, *ж.* (да 1 знач.) *і* **гуля́нне**, -я, *н.* (да 1, 2, 5 і 7 знач.).

**ГУЛЯ́Ш**, -у́, *м.* Страва з кусочкаў мяса ў соусе. || *прым.* **гуля́шны**, -ая, -ае.

**ГУ́МА**, -ы, *ж.* Эластычны матэрыял, які атрымліваецца шляхам вулканізацыі каўчуку; рызіна. || *прым.* **гу́мавы**, -ая, -ае. *Г. мячык. Гумавая прамысловасць.*

**ГУМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *незак., што.* Насычаць гумай, прарызіньваць.

**ГУМАНІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Гуманнасць, чалавечнасць у грамадскай дзейнасці, у адносінах да людзей. **2.** Прагрэсіўны рух эпохі Адраджэння ў імя вызвалення асобы чалавека ад феадальнай ідэалогіі і догматаў рэлігіі. || *прым.* **гуманісты́чны**, -ая, -ае.

**ГУМАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дзеяч або прыхільнік гуманізму. || *прым.* **гуманісцкі**, -ая, -ае.

**ГУМАНІТА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Звернуты да асобы чалавека, да яго правоў і інтарэсаў. *Гуманітарныя праблемы.* **2.** Аб навуках: якія звязаны з вывучэннем грамадства, культуры і гісторыі народа ў адрозненне ад прыродазнаўчых і тэхнічных навук. *Гуманітарная адукацыя.* || *наз.* **гуманіта́рнасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**ГУМАНІТА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Спецыяліст па гуманітарных навуках.

**ГУМА́ННЫ**, -ая, -ае. Чалавекалюбівы, дабрачынны, прасякнуты павагай да людзей. *Гуманныя мэты.* || *наз.* **гума́ннасць**, -і, *ж.*

**ГУ́МАР**, -у, *м.* **1.** Дабрадушна-жартаўлівыя адносіны да чаго-н. *Валодаць гумарам. Пачуццё гумару.* **2.** У мастацтве: паказ якой-н. з'явы ў дабрадушна-смешным, камічным выглядзе, а таксама літаратурны твор, заснаваны на гэтым прыёме. *Адзел сатыры і гумару ў газеце.* || *прым.* **гумарысты́чны**, -ая, -ае.

**ГУМАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Аўтар або выканаўца гумарыстычных твораў. **2.** Чалавек, схільны да гумару. || *ж.* **гумары́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **гумары́сцкі**, -ая, -ае.

**ГУМАРЫ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Сукупнасць гумарыстычных мастацкіх твораў. **2.** Нешта смешнае, камічнае (разм.). || *прым.* **гумарысты́чны**, -ая, -ае. *Гумарыстычныя апавяданні. Г. часопіс.*

**ГУМАРЭ́СКА**, -і, *ДМ* -рэ́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Невялікі літаратурна-мастацкі або музычны твор жартоўнага характару.

**ГУ́МКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* **1.** Кавалачак гумы для сцірання напісанага. **2.** Прагумаваная тасьма, а таксама шнур з гумавымі ніткамі. || *прым.* **гу́мкавы**, -ая, -ае.

**ГУМНІ́ШЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (разм.). Месца, на якім было гумно.

**ГУМНО́**, -а́, *мн.* гу́мны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) гумны́, -аў, *н.* Вялікая халодная будыніна для складвання і абмалоту збожжа, а таксама пляцоўка перад гэтай будынінай. || *прым.* **гуме́нны**, -ая, -ае.

**ГУМО́Р**, -у, *м.* Добры стан, душэўны настрой. *Нешта ён сёння не ў гуморы.*

**ГУ́НЫ**, -аў, *адз.* гун, -а, *м.* Група старажытных цюркамоўных плямён, якія ў 2—4 стст. уварваліся ў Еўропу.

**ГУ́НЬКА**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* **1.** Зрэбная посцілка. **2.** Пакрывала для коней, якое закрывае тулава. || *прым.* **гу́нькавы**, -ая, -ае.

**ГУ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Глуха стукаць, ударацць. *Гупаў адзінюткі цапок.* || *аднакр.* **гу́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. || *наз.* **гу́пат**, -у, *М* -паце, *м. і* **гу́панне**, -я, *н.*

**ГУ́РБА**, -ы, *мн.* -ы, гурб *і* -аў, *ж.* Куча снегу, намеценая ветрам. *Да платоў намяло вялікія гурбы снегу.*

**ГУРМА́**, -ы́, *ж.* (разм.). Шумлівая група людзей, ватага.

**ГУРМА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Любіцель і знаток вытанчаных страў. || *ж.* **гурма́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **гурма́нскі**, -ая, -ае.

**ГУРМА́НСТВА**, -а, *н.* Захапленне вытанчанымі стравамі.

**ГУРТ**, -а́ *і* -у, *М* -рце, *мн.* гурты́, -о́ў, *м.* **1.** -у. Група людзей, натоўп. *Г. вучняў.* **2.** -у. Статак буйной рагатай жывёлы, авечак і пад. *На лузе г. авечак.* **3.** *у знач. прысл.* **гу́ртам.** Разам, сумесна; натоўпам. *Цягнуць г. воз. Ісці г. Бегчы г.* **4.** -а́. Група (у 2 знач.), якая выконвае поп- або рок-музыку. *Вядомы г.* || *памянш.* **гурто́к**, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* (да 1 і 2 знач.). || *прым.* **гуртавы́**, -а́я, -о́е.

**ГУРТАЎШЧЫ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто суправаджае, гоніць гурт (у 2 знач.). || *прым.* **гуртаўшчы́цкі**, -ая, -ае.

**ГУРТКО́ВЕЦ**, -ко́ўца, *мн.* -ко́ўцы, -ко́ўцаў, *м.* (разм.). Удзельнік гуртка (у 2 знач.).

**ГУРТКО́ЎШЧЫНА**, -ы, *ж.* Дзейнасць, абмежаваная вузкімі інтарэсамі якога-н. гуртка, групы людзей у межах калектыву.

**ГУРТО́К**, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* **1.** *гл.* гурт. **2.** Група людзей з агульнымі інтарэсамі, якія аб'ядналіся для сумеснай дзейнасці, сумесных заняткаў. *Драматычны г.* || *прым.* **гуртко́вы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ГУРЧА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -чы́ць; *незак.* Раўнамерна, прыглушана гудзець (пра матор, ваду і пад.). *Пад акном гурчаў трактар.* || *наз.* **гурча́нне**, -я, *н.*

**ГУ́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* У ісламе: вечна юная прыгажуня, якая жыве ў раі і цешыць праведнікаў, што туды трапілі.

**ГУСА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Самец гусі.

**ГУСА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). У царскай Расіі і некаторых іншаземных арміях: ваенны з часцей лёгкай кавалерыі, якія насілі форму венгерскага ўзору. || *прым.* **гуса́рскі**, -ая, -ае.

**ГУСЕГАДО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Развядзенне гусей.

**ГУ́СЕНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Шырокі металічны ланцуг, які надзяваецца на колы трактара, танка для лепшай праходнасці. || *прым.* **гу́сенічны**, -ая, -ае.

**ГУ́СЛІ**, -яў. Мнагаструнны шчыпковы музычны інструмент славянскіх народаў. || *прым.* **гу́сельны**, -ая, -ае.

**ГУСЛЯ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Музыкант, які іграе на гуслях, а таксама спявак, які спявае пад звон гусляў. || *прым.* **гусля́рскі**, -ая, -ае.

**ГУ́СНУЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не; гус, гу́сла; *незак.* (разм.). Станавіцца больш густым (у 2 знач.), гусцець. *Варэнне гусне.*

**ГУСТ**, -у, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адчуванне, разуменне прыгожага. *Апранацца з густам.* **2.** Схільнасць да чаго-н. *У розных людзей розныя густы. Гэта мне па гусце* (падабаецца). **3.** Стыль, манера. *Зрабіць падарунак на свой г.*

**ГУСТА...** *і* **ГУСТА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. густы, напр.: *густавалосы, густалісты, густанаселены, густацёрты, густацякучы, густазялёны.*

**ГУСТАЎШЧЫ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Ацэнка якіх-н. з'яў толькі з пункту гледжання свайго суб'ектыўнага густу (у 2 знач.).

**ГУСТО́ЎНЫ**, -ая, -ае. З густам. *Г. гарнітур.*

**ГУСТЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які складаецца з мноства аднародных прадметаў, размешчаных блізка адзін каля аднаго. *Г. бярэзнік. Густое жыта. Буракі растуць густа* (прысл.). **2.** Не вадкі, з аслабленай цякучасцю, насычаны. *Густая смятана.* **3.** Шчыльны, малапранікальны для зроку, святла. *Г. туман. Густыя воблакі.* **4.** Пра голас: паўнагучны. *Г. бас.* || *наз.* **густата́**, -ы́, *ДМ* -таце́, *ж. і* **гушчыня́**, -і, *ж.*

**ГУСЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ее; *незак.* Рабіцца густым або больш густым. *Лес гусцее. Туман гусцее.* || *зак.* **загус-**

**цэ́ць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -е́е *і* **пагусцэ́ць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -е́е.

**ГУСЦІ́**, гуду́, гудзе́ш, гудзе́; гудзём, гудзяце́, гуду́ць; гуў, гула́, -ло́; гудзі́; *незак.* **1.** Утвараць працяжны аднатонны гук. *Вецер гудзе ў коміне. Гудзе матор. У вушах гуло* (безас.). **2.** Бесперапынна ныць ад болю, стомленасці. *Рукі аж гудуць.* ‖ *зак.* **прагусці́**, -гуду́, -гудзе́ш, -гудзе́; -гудзём, -гудзяце́, -гуду́ць; прагу́ў, -гула́, -гуло́ (да 1 знач.). ‖ *наз.* **гудзе́нне**, -я, *н.*

**ГУСЬ**, -і, *мн.* гу́сі, -е́й, *ж.* Дзікая і свойская вадаплаўная птушка з доўгай шыяй. *Як з гусі вада* (таксама перан.: нічога не дзейнічае). ‖ *памянш.-ласк.* **гу́ска**, -і, *ДМ* -сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* ‖ *прым.* **гусі́ны**, -ая, -ае.

**ГУСЯНЯ́** *і* **ГУСЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Птушаня гусі.

**ГУСЯ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Памяшканне для гусей. *Пабудавалі новы г.*

**ГУСЯ́ТНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** Работніца, якая даглядае гусей. **2.** Прадаўгаватая авальная пасудзіна з тоўстымі сценкамі для смажання і тушэння гусей, качак, курэй.

**ГУСЯ́ЦІНА**, -ы, *ж.* Гусінае мяса як ежа.

**ГУ́ТА**, -ы, *ДМ* гу́це, *мн.* -ы, гут, *ж.* Даўнейшая назва шклозавода. *Працаваў на гуце.* ‖ *прым.* **гу́тавы**, -ая, -ае.

**ГУТАЛІ́Н**, -у, *м.* Мазь для чысткі і паліроўкі скуранога абутку. ‖ *прым.* **гуталі́навы**, -ая, -ае.

**ГУТАПЕ́РЧА**, -ы, *ж.* Пластычная скурападобная маса, па ўласцівасцях блізкая да каўчуку. ‖ *прым.* **гутапе́рчавы**, -ая, -ае.

**ГУ́ТАРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Дзелавая або сардэчная размова. *Г. спачатку не ладзілася.* **2.** Даклад, паведамленне, звычайна з удзелам слухачоў для абмену думкамі. *Правесці гутарку.*

**ГУТАРКО́ВЫ**, -ая, -ае. Якім карыстаюцца ў гутарцы, уласцівы вуснай народнай мове. *Г. стыль. Гутарковая мова.*

**ГУТАРЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Схільны да размоў, гаварлівы. *Г. чалавек.* ‖ *наз.* **гутарлі́васць**, -і, *ж.*

**ГУ́ТАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак., з кім* і *без дап.* Размаўляць, весці гутарку. *Г. са старшынёй.*

**ГУ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Рабочы, які працаваў на гуце, вырабляў шкло. ‖ *прым.* **гу́тніцкі**, -ая, -ае.

**ГУЧА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* гучаць. **2.** *перан.* Накіраванасць, характар, сэнс. *Вострае сацыяльнае г. п'есы.*

**ГУЧА́ЦЬ** *і* **ГУЧЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -чы́ць; *незак.* **1.** Утвараць гукі, раздавацца (пра гукі). *Струны гучаць глуха. Гучыць вясёлая мелодыя.* **2.** *перан.* Успрымацца як нешта важнае, урачыстае, прыгожае і пад. *Кібернетыка — гэта гучыць! Чалавек! Гэта гучыць горда.* **3.** Вынікаць, праяўляцца. *У гэтым пытанні гучыць сумненне. У голасе гучыць радасць.* ‖ *наз.* **гуча́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ГУЧНАГАВАРЫ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Прыбор для ўзмацнення гукаў.

**ГУЧНАГАЛО́СЫ**, -ая, -ае. З гучным голасам. ‖ *наз.* **гучнагало́сасць**, -і, *ж.*

**ГУЧНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -е́е; *незак.* Рабіцца больш моцным (пра гукі). *Галасы гучнелі.*

**ГУ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які характарызуецца выразным, далёка чутным гукам. *Г. голас. Гучная мелодыя.* **2.** *перан.* Які атрымаў шырокую вядомасць. *Гучная слава. Гучнае імя.* **3.** *перан.* Напышлівы, многаабяцаючы. *Гучныя фразы.* ‖ *наз.* **гу́чнасць**, -і, *ж.*

**ГУЧО́К**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* Маладая галінка, атожылак, парастак. *Адсадзіць г.* ‖ *прым.* **гучко́вы**, -ая, -ае.

**ГУЧЭ́ЦЬ** *гл.* гучаць.

**ГУ́ШКАЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Тое, што і *арэлі.* ‖ *прым.* **гу́шкалкавы**, -ая, -ае.

**ГУ́ШКАЦЦА**, -аюся, -ешся, -аецца; *незак.* Рытмічна калыхацца з аднаго боку ў другі або зверху ўніз. *Г. на арэлях. Г. на марскіх хвалях.* ‖ *аднакр.* **гушкану́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся. ‖ *наз.* **гу́шканне**, -я, *н.*

**ГУ́ШКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што* (разм.). **1.** Рытмічна гайдаць, калыхаць з аднаго боку ў другі або зверху ўніз. *Г. дзіця.* **2.** З захапленнем падкідаць каго-н. на руках. ‖ *аднакр.* **гушкану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **гу́шканне**, -я, *н.*

**ГУ́ШЧА**, -ы, *ж.* **1.** Густы асадак (стравы, раствору і пад.). *На дне засталася г. Г. дзяцей не разганяе* (прыказка). **2.** Тое, што і *гушчар.* **3.** Самае густое месца ў чым-н., цэнтр. *Уціснуцца ў самую гушчу натоўпу. Быць у гушчы падзей* (перан.).

**ГУШЧА́Р**, -у́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Густы ўчастак лесу. *Непралазны г.*

**ГУШЧА́РНІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *гушчар.*

**ГУШЧЫНЯ́**, -і́, *ж.* **1.** *гл.* густы. **2.** Тое, што і *гушчар. Лясная г.* **3.** Тое, што і *гушча* (у 3 знач.). *У гушчыні натоўпу.*

**ГУШЧЭ́ЧА**, -ы, *ж.* (разм.). Тое, што і *гушчар. З лазовай гушчэчы не выбрацца.*

**ГЫ́РКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Сварыцца з кім-н., лаяцца. ‖ *наз.* **гы́рканне**, -я, *н.*

**ГЫ́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Пра сабаку: пагрозліва вурчаць. *Гыркаў сабака.* **2.** *перан.* Груба гаварыць, бурчаць (разм.). *Г. на дзяцей.* ‖ *аднакр.* **гыркнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **гы́рканне**, -я, *н.*

**ГЭ́БЕЛЬ**, -бля, *мн.* -блі, -бляў, *м.* Сталярны інструмент у выглядзе калодкі з шырокім лязом для стругання дрэва. ‖ *памянш.* **гэ́блік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **гэ́бельны**, -ая, -ае.

**ГЭЙ**, *выкл.* Воклік, якім звяртаюцца да каго-н. *Гэй, пастой! Гэй, вы, коні!*

**ГЭ́ТА**, *часц.* **1.** *указ.* Служыць для вылучэння, падкрэслівання таго ці іншага слова ў сказе. *Г. мы прыйшлі.* **2.** Удакладняе сэнс выказніка, які выражаны назоўнікам, прыметнікам, інфінітывам ці прыслоўем. *Праца — г. крыніца нашага багацця. Жыццё — г. барацьба.* **3.** *узмацн.* Узмацняе сэнс, значэнне папярэдняга займенніка, прыслоўя, часціцы ў пытальных, клічных і даданых сказах. *Ці г. ты яшчэ з работы ідзеш?*

**ГЭ́ТАК**, *прысл.* Тое, што і *так. Даўно б г. І г. далей. І так і г.*

**ГЭ́ТАКІ** *і* **ГЭ́ТКІ**, -ая, -ае, *займ.* Тое, што і *такі.*

**ГЭ́ТУЛЬКІ**, *прысл.* і *займ. указ.* (разм.). Столькі, так многа. *Вам нельга г. чытаць. Г. людзей сышлося, як ніколі!*

**ГЭ́ТЫ**, -ага, *м.*, гэ́та (гэ́тая), -ай, *ж.*, гэ́та (гэ́тае), -ага, *н.*, *мн.* гэ́тыя, -ых, *займ. указ.* **1.** Паказвае на асобу або прадмет, якія знаходзяцца перад вачамі. *Г. ці той лес? Гэтага чалавека не сустракаў ніколі.* **2.** Паказвае на адрэзак часу, пра які ідзе гаворка. *Гэтымі днямі на рыбу не прыйдзецца ісці.* **3.** Паказвае на ўжо вядомую асобу або прадмет. *Дзіўны чалавек г. Галілей! Ах, гэтыя модніцы!*

**ГЮРЗА́**, -ы́, *мн.* гю́рзы, -аў, *ж.* Ядавітая змяя сямейства гадзюк.

**ГЯЎР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У мусульман: пагардлівая назва чалавека іншай веры.

# Д

**ДА**, *прыназ. з Р.* **1.** Выражае прасторавыя адносіны, указвае месца ці прадмет, да якіх скіравана дзеянне. *Плысці да берага.* **2.** Ужыв. для абазначэння мяжы, да якой пашыраецца дзеянне, з'ява і пад. *Падкасаць штаны да каленяў.* **3.** Ужыв. для абазначэння велічыні, памеру чаго-н. *Барада да пояса. Кажух да пят.* **4.** Паказвае на час, да якога адбываецца дзеянне. *Працаваць ад раніцы да вечара.* **5.** Ужыв. для падкрэслівання такой падзеі, якая адбылася раней чаго-н. іншага. *У кансерваторыю паступіў да прызыву ў армію.* **6.** Ужыв. для вызначэння ступені якасці, якой дасягае дзеянне, стан. *Крычаць да знямогі. Надраіць да бляску.* **7.** Ужыв. для ўказання на прадмет, асобу, на якую накіравана дзеянне. *Сватацца да дзяўчыны.*

*Дакрануцца да шафы. У мяне да цябе справа ёсць. Рыхтавацца да экзаменаў. Імкнуцца да новых поспехаў.* **8.** Ужыв. для вызначэння прыгоднасці да чаго-н. *Здатны да музыкі. Спрытны да працы.* **9.** Ужыв. пры абазначэнні прадмета, асобы, з'явы, да якіх ёсць патрэба, зацікаўленасць, схільнасць. *Аматар да танцаў. Цяга да спорту.* **10.** Ужыв. для выражэння адносін да каго-, чаго-н. *Павага да старэйшых. Нянавісць да акупантаў.* **11.** Ужыв. для абазначэння падабенства, блізкасці да каго-, чаго-н. *Падобны да бацькі.* **12.** Ужыв. для паказання паўнаты колькаснага ахопу каго-, чаго-н. *Фільм зацікавіў усіх — ад малога да старога. Разлічыцца да капейкі.* **13.** Ужыв. для выражэння прыблізнай колькасці чаго-н. *Зала змяшчае да васьмісот чалавек.* **14.** У спалучэнні з прыназ. «ад» і другім лічэбнікам ужыв. для абазначэння абмежавальных велічынь чаго-н. *Дзеці ад трох да пяці гадоў.* **15.** Ужыв. ў выразе пры развітанні. *Да пабачэння. Да новых сустрэч.* **16.** Ужыв. ў пачатку загалоўкаў навуковых артыкулаў, даследчых прац. *Да пытання аб паходжанні мовы. Да пытання аб электрадынаміцы цел, якія рухаюцца.*

**ДА...**, *прыстаўка.* **1.** Служыць для ўтварэння дзеясловаў са знач. завяршэння дзеяння, давядзення яго да канца, да якой-н. мяжы або дасягнення мэты, напр.: *давараць, даесці, дапісаць, дажыць, даплысці.* **2.** Служыць для ўтварэння дзеясловаў са знач. прыбаўлення да ранейшага, напр.: *даатрымаць, дакупіць, даўкамплектаваць.* **3.** Удзельнічае ва ўтварэнні дзеясловаў на *-цца, -ся* са знач. дамагчыся чаго-н., напр.: *дабудзіцца, дазваніцца, даклікацца.* **4.** Служыць для ўтварэння дзеясловаў на *-цца, -ся* са знач. адмоўнай ацэнкі вынікаў дзеяння, напр.: *дабегацца, дагуляцца, даскакацца.* **5.** Служыць для ўтварэння прыметнікаў са знач.: ранейшы, які адбыўся да таго, што абазначана ўтваральнай асновай, напр.: *даваенны, дакастрычніцкі, датэрміновы.* **6.** Служыць для ўтварэння прыслоўяў са знач. меры дзеяння, напр.: *дабяла, дагала, дачыста, дапаўна, дап'яна, дапазна, дацямна.*

**ДААБЕ́ДЗЕННЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца, з'яўляецца да абеду. *Даабедзенная прагулка.*

**ДААРА́ЦЦА**, -ару́ся, -арэ́шся, -арэ́цца; -аро́мся, -арацэ́ся, -ару́цца; -ары́ся; *зак.* (разм.). **1.** Аручы, дасягнуць якога-н. месца. *Д. да лесу.* **2.** Працуючы на ворыве, вельмі стаміцца. *Дааραўся да таго, што ног не чуе.* ‖ *незак.* **даво́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДААСТА́ТКУ**, *прысл.* (разм.). Да канца, поўнасцю. *Выліць усё д.*

**ДАА́ТАМНЫ**, -ая, -ае. Які існаваў да выкарыстання атамнай энергіі. *Д. перыяд.*

**ДАБА́ВІЦЬ**, -баўлю, -ба́віш, -ба́віць; -ба́ўлены; *зак., каго-што* і *чаго.* **1.** Даць, наліць, насыпаць і пад. дадаткова, звыш таго, што маецца, што прызначана, або папоўніць тое, чаго не стае. *Д. вады. Д. солі ў халаднік.* **2.** Сказаць або напісаць у дадатак. *Д. некалькі слоў да пісьма. Усё зразумела, д. нечага.* ‖ *наз.* **дабаўле́нне**, -я, *н.*

**ДАБА́ЎКА**, -і, *ДМ* -ба́ўцы, *мн.* -і, -ба́вак, *ж.* Тое, што дабаўлена, прыбаўка (у 1 знач.). *Верашчаку елі і прасілі дабаўкі.* ‖ *прым.* **даба́вачны**, -ая, -ае.

**ДАБЕ́ГЧЫ**, -бягу́, -бяжы́ш, -бяжы́ць; -бяжы́м, -бежыцэ́, -бягу́ць; дабе́г, -гла; -бяжы́; *зак.* Бягом дасягнуць якога-н. месца. *Д. да хаты.* ‖ *незак.* **дабяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАБЕ́ЛЬВАЦЬ** *гл.* дабяліць.

**ДАБІРА́ЦЦА** *гл.* дабрацца.

**ДАБІРА́ЦЬ** *гл.* дабраць.

**ДАБІ́ЦЦА**, -б'ю́ся, -б'е́шся, -б'е́цца; -б'ёмся, -б'яцэ́ся, -б'ю́цца; *зак., чаго.* Настойлівымі намаганнямі дамагчыся чаго-н. *Д. прызнання. Д. свайго.* ‖ *незак.* **дабіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДАБІ́ЦЬ**, -б'ю́, -б'е́ш, -б'е́; -б'ём, -б'яцэ́, -б'ю́ць; -бі́ты; *зак.* **1.** *каго (што).* Прыкончыць (у 2 знач.) раненага, падстрэленага. *Паляўнічы дабіў звера. Гэтыя весткі зусім дабілі старога* (перан.). **2.** *перан., каго-што.* Канчаткова разграміць. *Д. варожыя сілы.* **3.** *што.* Канчаткова разбіць што-н. недабітае, трэснутае; перабіць усё, што засталося цэлым. *Д. талеркі.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *што* і *чаго.* Скончыць біць, утвараць гукі (пра гадзіннік). *Гадзіннік не паспеў д. шостага ўдару, як пачалася нарада.* **5.** *што.* Увагнаць да канца. *Д. цвік.* **6.** *перан., што.* Завяршыць якую-н. работу. *К вечару дабілі жніво.* ◊ **Дабіць да ручкі** (разм.) — давесці да развалу, да поўнай непрыгоднасці. ‖ *незак.* **дабіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАБРА...** (*гл.* **добра...**). Першая састаўная частка складаных слоў, якая ўжыв. замест «добра...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *дабрадзейны, дабрадушны, дабратворны.*

**ДАБРАБЫ́Т**, -у, *М* -бы́це, *м.* Дастатак, забяспечанасць. *Клапаціцца пра д. народа.*

**ДАБРАВЕ́ШЧАННЕ** *і* **ДАБРАВЕ́СЦЕ**, -я, *н.* (з вялікай літары). Веснавое хрысціянскае свята: абвяшчэнне Дзеве Марыі аб будучым нараджэнні Хрыста.

**ДАБРАВО́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* Тое, што і *добраахвотнік.*

**ДАБРАВО́ЛЬНІЦКІ**, -ая, -ае. Тое, што і *добраахвотніцкі.*

**ДАБРАВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *добраахвотны.*

**ДАБРАДЗЕ́Й**, -дзе́я, *мн.* -дзе́і, -дзе́яў, *м.* Той, хто робіць дабро, дапамагае, аказвае паслугу каму-н. *На словах д., а на справе ліхадзей* (з нар.). ‖ *ж.* **дабрадзе́йка**, -і, *ДМ* -дзе́йцы, *мн.* -і, -дзе́ек.

**ДАБРАДЗЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Гатовы дапамагчы іншым; дабрачынны. *Дабрадзейныя людзі.* ‖ *наз.* **дабрадзе́йнасць**, -і, *ж.*

**ДАБРАДУ́ШНЫ**, -ая, -ае. Добры і мяккі па характары чалавек. *Гэта была дабрадушная і прыемная жанчына.* ‖ *наз.* **дабраду́шнасць**, -і, *ж.*

**ДАБРА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Добры, спагадлівы чалавек. *Ён д. па натуры.* ‖ *ж.* **дабра́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **дабра́цкі**, -ая, -ае.

**ДАБРА́НАЧ**, *выкл., у знач. вык.* (разм.). Ужыв. як пажаданне спакойнай ночы пры развітанні вечарам.

**ДАБРАТА́**, -ы́, *ДМ* -рацэ́, *ж.* Спагадлівасць, душэўная прыхільнасць да людзей, імкненне рабіць усё добрае для іншых. *У яго вачах свяцілася д.*

**ДАБРАТВО́РНЫ**, -ая, -ае. Які добра ўздзейнічае на каго-, што-н.; спрыяльны. *Д. ўплыў прыроды на чалавека.* ‖ *наз.* **дабратво́рнасць**, -і, *ж.*

**ДАБРА́ЦЦА**, -бяру́ся, -бярэ́шся, -бярэ́цца; -быро́мся, -берацэ́ся, -бяру́цца; -бра́ўся, -бра́лася; -бяры́ся; *зак., да каго-чаго.* **1.** Пасля затраты часу або сіл няскора дайсці, даехаць да якога-н. месца. *Д. да вёскі.* **2.** Прыкладаючы намаганні, дасягнуць разумення чаго-н. *Д. да сутнасці справы.* **3.** *перан.* Атрымаць магчымасць узяцца за каго-, што-н.; расправіцца з кім-н. (разм.). *Я да цябе яшчэ дабяруся.* ‖ *незак.* **дабіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДАБРА́ЦЬ**, -бяру́, -бярэ́ш, -бярэ́; -бяро́м, -берацэ́, -бяру́ць; -бяры́; -бра́ны; *зак., каго-што* і *каго-чаго.* **1.** Сабраць дадаткова, да поўнай меры. *Д. ягад у кош.* **2.** Выбіраючы, знайсці патрэбнае. *Д. крэсла да гарнітура. Д. матэрыі на сукенку.* **3.** Завяршыць набор чаго-н. (кнігі, артыкула і пад.). *Д. кнігу.* ‖ *незак.* **дабіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАБРАЧЫ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Чалавек, які вызначаецца дабрынёй, чула адносіцца да людзей, дапамагае, чым можа. ‖ *ж.* **дабрачы́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **дабрачы́нніцкі**, -ая, -ае.

**ДАБРАЧЫ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Звязаны з матэрыяльнай дапамогай каму-н. *Д. канцэрт.* **2.** Накіраваны на грамадскую карысць. *Дабрачыннае аб'яднанне.* ‖ *наз.* **дабрачы́ннасць**, -і, *ж.*

**ДАБРАЯ́КАСНЫ**, -ая, -ае. **1.** Добрай якасці, які задавальняе патрабаванні. *Дабраякасныя прадукты.* **2.** У медыцыне: не злаякасны. *Дабраякасная пухліна.* ‖ *наз.* **дабрая́каснасць**, -і, *ж.*

**ДАБРО́**, -а́, *н.* **1.** Усё станоўчае, карыснае. *Жадаць дабра каму-н.* **2.** Добрыя справы, учынкі. *За маё д. ды мне ў рабро* (з нар.). *Зрабіць многа дабра людзям.* **3.** Маёмасць, рэчы, пажыткі (разм.). *У іх куфры поўныя дабра.* **4.** Што-н. нягоднае, непатрэбнае, дрэннае (разм., іран.). *Такога дабра нам і дарма не трэба.* ◊ **Не з дабра** — не ад добрага жыцця. **Не на дабро** — пра тое, што можа прывесці да дрэнных вынікаў.

**ДАБРО́М**, *прысл.* (разм.). Па-добраму, без прымусу. *Паслухай д., бо горш будзе.*

**ДАБРО́ТЫ**, -ро́т *і* -аў. Тое, што задавальняе чалавечыя патрэбы, дае матэрыяльны дастатак. *Д. жыцця.*

**ДАБРЫ́ДЗЕНЬ**, *выкл., у знач. вык.* (разм.). Ужыв. як прывітанне пры сустрэчы днём.

**ДАБРЫНЯ́**, -і́, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што і *дабрата.* **2.** Раскоша, харство, любата. *Якая д. раніцай на сенажаці!*

**ДАБРЫСЦІ́**, -брыду́, -брыдзе́ш, -брыдзе́; -брыдзём, -брыдзяце́, -брыду́ць; -брыў, -брыла́, -ло́; -брыдзі́; *зак.* (разм.). Марудна, з цяжкасцю дайсці куды-н., да якога-н. месца. *Д. ў горад.*

**ДАБРЭ́ЦЬ**, -рэ́ю, -рэ́еш, -рэ́е; *незак.* Станавіцца лепшым, больш добрым. ‖ *зак.* **падабрэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е.

**ДАБУДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; *зак.* **1.** Скончыць пабудову, будаўніцтва. **2.** Надбудаваць. ‖ *звар.* **дабудава́цца**, -ду́юся, -ду́ешся, -ду́ецца.

**ДАБУДЗІ́ЦЦА**, -буджу́ся, -бу́дзішся, -бу́дзіцца; *зак., каго.* Разбудзіць не адразу, прымусіць прачнуцца. *Санлівага не дабудзішся, лянівага не дашлешся* (прыказка).

**ДАБЫ́ТАК**, -тку, *м.* (разм.). Дабро, пажыткі. *Прывёз з сабой увесь д.*

**ДАБЫ́ЦЬ**, -бу́ду, -бу́дзеш, -бу́дзе; *зак.* Прабыць дзе-н. да пэўнага тэрміну ці да канца. *Д. выпрабавальны тэрмін. Д. да канца сходу.*

**ДАБЯГА́ЦЬ** *гл.* дабегчы.

**ДАБЯЛА́**, *прысл.* **1.** Чыста, да белага колеру. *Вымыць сарочку д.* **2.** Да белага напалу. *Нагрэць д.*

**ДАБЯЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -бе́ліцца; *зак.* (разм.). Канчаткова выбеліцца. *Палатно дабеліцца на сонцы.*

**ДАБЯЛІ́ЦЬ**, -бялю́, -бе́ліш, -бе́ліць; *зак.* **1.** Закончыць пабелку ці бяленне чаго-н. *Д. сцены.* **2.** Выбеліць што-н. да якога-н. месца. ‖ *незак.* **дабе́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАВАЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які існаваў ці з'явіўся да вайны. *Д. будынак. Д. ўзровень развіцця прамысловасці.*

**ДАВА́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* Дабаўка да таго, што ўзважваецца, калі ў ім не хапае вагі. *Сыр з даважкай.*

**ДАВА́ЖЫЦЬ**, -ва́жу, -ва́жыш, -ва́жыць; *зак.* **1.** Закончыць узважванне чаго-н. **2.** Важачы што-н., дадаць пэўную колькасць да поўнай вагі. ‖ *незак.* **дава́жваць**, -ваю, -ваеш, -вае.

**ДАВАЗІ́ЦЬ**, -важу́, -во́зіш, -во́зіць; *зак., што.* Скончыць возку чаго-н. *Усё сена не паспелі д.*

**ДАВАЛАЧЫ́**, -лаку́, -лачэ́ш, -лачэ́; -лачо́м, -лачаце́, -лаку́ць; -ло́к, -лакла́, -ло́; -лачы́; -ло́чаны; *зак., што* (разм.). З цяжкасцю данесці, дацягнуць да якога-н. месца. *Ледзь давалок мех бульбы. Хлопцы не змаглі д. лодку да возера.* ‖ *незак.* **давалака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАВАЛАЧЫ́СЯ**, -лаку́ся, -лачэ́шся, -лачэ́цца; -лачо́мся, -лачаце́ся, -лаку́цца; -ло́кся, -лакла́ся, -ло́ся; -лачы́ся; *зак.* (разм.). З цяжкасцю дайсці, дабрацца да якога-н. месца. *Ледзь давалокся да хаты.* ‖ *незак.* **давалака́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДАВА́ЛЬНЫ**. У выразе: **давальны склон** — склон, які адказвае на пытанні: каму? чаму?

**ДАВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ва́рыцца; *зак.* Зварыцца канчаткова; стаць гатовым для ўжывання. *Мяса даварылася.*

**ДАВА́ЦЦА** *гл.* дацца.

**ДАВА́ЦЬ**, даю́, дае́ш, дае́; даём, даяце́, даю́ць; *незак.* **1.** *гл.* даць. **2.** *у знач. часц.* **дава́й(це)**. У спалучэнні з інф. незак. ці 1 ас. мн. буд. азначае прапанову, запрашэнне зрабіць што-н. разам, сумесна (разм.). *Давай бегаць. Давайце паснедаем.* **3.** *у знач. часц.* **дава́й**. У спалучэнні з інф. незак. служыць для выражэння энергічнага пачатку дзеяння. *Раззлаваўся дзед, адперазаў папружку і давай гнаць падшыванцаў з саду. Прыбег і д. крычаць.*

**ДАВАЯВА́ЦЦА**, -ваю́юся, -ваю́ешся, -ваю́ецца; -ваю́йся; *зак.* (разм.). Ваюючы, пацярпець няўдачу, атрымаць непрыемнасці. *Порт-Артур паў. Даваяваўся Курапаткін! Д. да кантузіі.*

**ДАВЕ́ДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** *што, чаго, пра каго-што, аб кім-чым.* Сабраць, атрымаць звесткі аб кім-, чым-н. *Многа чаго ён даведаўся з кніг. З розных крыніц можна д. пра дзейнасць Францыска Скарыны.* **2.** *аб кім-чым, пра каго-што.* Атрымаць даведку, запытацца аб чым-н. *Д. аб стане хворага.* **3.** *каго.* Наведаць каго-н., прыйсці да каго-н. (разм.). *Д. бацькі.* ‖ *незак.* **даве́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАВЕ́ДАЧНЫ**, -ая, -ае. Які дае даведкі або змяшчае розныя даведкі. *Даведачнае бюро. Даведачная кніга.*

**ДАВЕ́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Звесткі аб чым-н., атрыманыя кім-н. пасля пошукаў, запытання. *Звярнуцца за даведкай. Атрымаць даведку.* **2.** Дакумент з такімі звесткамі. *Д. з месца працы.*

**ДАВЕ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Кніга з кароткімі і дакладнымі звесткамі аб чым-н. *Тэлефонны д. Арфаграфічны д.*

**ДАВЕ́ЗЦІ**, -вязу́, -вязе́ш, -вязе́; -вязём, -везяце́, -вязу́ць; -вёз, -ве́зла; -вязі́; -ве́зены; *зак., каго-што.* **1.** Везучы, даставіць да месца. *Д. да вакзала.* **2.** Прывезці дадаткова таго, чаго не хапае. *Д. цэмент на будоўлю.* ‖ *незак.* **даво́зіць**, -во́жу, -во́зіш, -во́зіць.

**ДАВЕ́ЙВАЦЬ** *гл.* давеяць.

**ДАВЕ́КУ**, *прысл.* Да канца жыцця. *Маленькі сабака д. шчаня* (з нар.).

**ДАВЕ́Р**, -у, *м.* Тое, што і *давер'е.*

**ДАВЕ́РАНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Дакумент, які дае права каму-н. дзейнічаць ад імя таго, хто выдаў гэты дакумент. *Д. на атрыманне пасылкі.*

**ДАВЕ́РАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Надзелены давер'ем. *Давераная асоба.* **2.** *у знач. наз.* **даве́раны**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Той, хто дзейнічае па чыёй-н. даверанасці. *Паслаць свайго даверанага.*

**ДАВЕ́Р'Е**, -я, *н.* Упэўненасць у чыёй-н. добрасумленнасці, шчырасці, у правільнасці чаго-н. і заснаваныя на гэтым адносіны да каго-, чаго-н. *Лічбы не выклікаюць давер'я. Заслужыць д. народа.*

**ДАВЕ́РЛІВЫ**, -ая, -ае. Які лёгка верыць у шчырасць, праўдзівасць, адносіцца да ўсіх з давер'ем; заснаваны на давер'і. *Д. чалавек. Д. тон. Даверлівыя адносіны.* ‖ *наз.* **даве́рлівасць**, -і, *ж.*

**ДАВЕ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Асоба, якая выдала каму-н. даверанасць ад свайго імя. ‖ *ж.* **даве́рніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **даве́рніцкі**, -ая, -ае.

**ДАВЕ́РНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які сведчыць аб даручэнні каму-н. чаго-н., які з'яўляецца даверанасцю. *Д. дакумент. Давернае пісьмо.* ‖ *наз.* **даве́рнасць**, -і, *ж.*

**ДАВЕ́РХУ**, *прысл.* Да самых верхніх краёў. *Наліць у бочку вады д.* ◊ **Знізу даверху** — 1) усюды, у любым месцы; 2) ад ніжэйшых інстанцый да вышэйшых.

**ДАВЕ́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак., каму-чаму.* Паверыць каму-, чаму-н., паспадзявацца на каго-, што-н. *Яму можна д.*

**ДАВЕ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каму каго-што* або *з інф.* Праяўляючы давер'е, даручыць. *Д. таварышу машыну. Д. атрымаць зарплату.* ‖ *незак.* **давяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАВЕ́СЦІ**[1], -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзём, -ведзяце́, -вяду́ць; -вёў, вяла́, -ло́; -вядзі́; -ве́дзены; *зак.* **1.** *каго (што) да чаго.* Ведучы, даставіць да якога-н. месца. *Д. старога да хаты.* **2.** *што да чаго.* Пракласці, правесці да якога-н. месца. *Д. шашу да райцэнтра.* **3.** *што да чаго.* Займаючыся якой-н. справай, работай, дасягнуць пэўнай мяжы. *Д. справу да канца.* **4.** *каго-што да чаго.* Прывесці ў які-н. стан. *Д. да слёз.* **5.** *што да каго-чаго.* Абавязаць да выканання (задання, разнарадкі і пад.). *Д. план да кожнага.* **6.** *што.* Падагнаць, прыладзіць адно к аднаму. *Д. аконную раму.* ◊ **Давесці да ведама** (афіц.) — паведаміць, праінфармаваць, перадаць. **Давесці да торбы** (разм.) — прывесці да беднасці, да жабрацтва. ‖ *незак.* **даво́дзіць**, -во́джу, -во́дзіш, -во́дзіць.

**ДАВЕ́СЦІ**[2], -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзём, -ведзяце́, -вяду́ць; -вёў, -вяла́, -вяло́; -вядзі́; -ве́дзены; *зак., што.* Даказаць, пацвердзіць правільнасць чаго-н. фактамі, довадамі. *Д. тэарэму.* ‖ *незак.* **даво́дзіць**, -во́джу, -во́дзіш, -во́дзіць.

**ДАВЕ́СЦІСЯ**, -вядзе́цца; -вяло́ся; *безас., зак.* Здарыцца, прыйсціся. *Давялося папрацаваць сакратарам сельсавета.* ‖ *незак.* **даво́дзіцца**, -во́дзіцца; -во́дзілася.

**ДАВЕ́ЯЦЬ**, -ве́ю, -ве́еш, -ве́е; -ве́й; -ве́яны; *зак., што.* Закончыць веянне чаго-н. *Д. ячмень.* ‖ *незак.* **даве́йваць**, -ваю, -ваеш, -вае.

**ДАВІДНА́**, *прысл.* Да світання, пакуль не развіднее. *Гарох змалацілі яшчэ д.*

**ДАВІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для выціскання соку з ягад, садавіны. *Д. прэс.*

**ДАВІ́ЦЦА**, даўлюся, да́вішся, да́віцца; *незак., чым.* **1.** Задыхацца ад чаго-н., што засела ў горле, або прыступу кашлю, смеху і пад. *Д. косткай.* **2.** *перан.* Харчавацца чым-н., што прыелася, абрыдла. *Д. бульбай.* ‖ *зак.* **удаві́цца**, удаўлюся, уда́вішся, уда́віцца (да 1 знач.) *і* **падаві́цца**, -даўлюся, -да́вішся, -да́віцца (да 1 знач.).

**ДАВІ́ЦЬ**[1], даўю́, даўе́ш, даўе́; даўём, даўяце́, даўю́ць; даві́; даві́ты; *зак., што.* Закончыць віццё чаго-н. *Д. вяроўку.* ‖ *незак.* **давіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАВІ́ЦЬ**[2], даўлю́, да́віш, да́віць; *незак.* (разм.). **1.** Налягаць, націскаць цяжарам. *Цяжкая зброя давіць на плечы.* **2.** *перан.* Прыгнятаць, падаўляць.

**ДАВО́ДЗІЦЦА**, -во́джуся, -во́дзішся, -во́дзіцца; *незак.* **1.** *гл.* давесціся. **2.** *каму кім.* Быць у роднасных адносінах з кім-н. *Ён даводзіцца мне дзядзькам.*

**ДАВО́ДЗІЦЬ**[1] *гл.* давесці[1].

**ДАВО́ДЗІЦЬ**[2] *гл.* давесці[2].

**ДАВО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (спец.). Наданне вырабу дакладных памераў шляхам механічнай падгонкі, шліфоўкі. *Д. дэталей.* ‖ *прым.* **даво́дачны**, -ая, -ае. *Д. станок.*

**ДАВО́ЗІЦЬ** *гл.* давезці.

**ДАВО́ЛІ**, *прысл.* **1.** (у спалучэнні з прым. або прысл.). У значнай ступені, у вялікай колькасці. *Прыйшлося дабірацца д. доўга.* **2.** *безас., у знач. вык.* Дастаткова, колькі трэба. *Дома ўсяго д.* **3.** *безас. з інф.* або *з Р.* Хопіць, досыць, пара спыніць. *Д. слоў, справа патрэбна!*

**ДАВО́РВАЦЦА** *гл.* даарацца.

**ДАВУЧЫ́ЦЦА**, -вучу́ся, -ву́чышся, -ву́чыцца; *зак.* **1.** Завяршыць сваю адукацыю, закончыць навучанне чаму-н. *Вайна не дазволіла д.* **2.** *да чаго.* Правучыцца да якога-н. тэрміну. *Д. да восьмага класа.* **3.** *да чаго.* Працяглай вучобай давесці сябе да якіх-н. непрыемных вынікаў (разм.). *Давучыцца да прытуплення зроку.* ‖ *незак.* **даву́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАВУЧЫ́ЦЬ**, -вучу́, -ву́чыш, -ву́чыць; -ву́чаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Давесці навучанне каго-н. да канца. *Д. сына.* **2.** *што.* Вывучыць што-н. поўнасцю або да якой-н. мяжы. *Д. табліцу множання. Д. урок. Д. паэму да другога раздзела.* ‖ *незак.* **даву́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАВЫ́БАРЫ**, -аў. Дадатковыя выбары на вызваленыя, вакантныя месцы. *Д. дэпутатаў у Нацыянальны сход.*

**ДАВЫ́БРАЦЬ**, -беру, -бераш, -бера; -беры; -браны; *зак., каго.* Дадаткова выбраць каго-н. куды-н. *Д. дэпутата.* ‖ *незак.* **давыбіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАВЯЗА́ЦЬ**, -вяжу́, -вя́жаш, -вя́жа; -вяжы́; -вя́заны; *зак., што.* **1.** Закончыць вязанне чаго-н. *Д. шкарпэткі.* **2.** Закончыць звязванне чаго-н. *Д. снапы.* ‖ *незак.* **давя́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАВЯРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* даверыць. **2.** *каму.* Выказваць пачуццё даверу. *Ён мне давярае ва ўсім.*

**ДАВЯРШЫ́ЦЬ**, -вяршу́, -ве́ршыш, -ве́ршыць; -ве́ршаны; *зак., што.* Давесці да канца, скончыць. *Д. пачатую справу.* ‖ *незак.* **давярша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **давярша́нне**, -я, *н.*

**ДАГАБЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *зак., што.* **1.** Скончыць габляваць. *Д. дошкі.* **2.** Давесці габляванне да якой-н. мяжы. *Д. бэльку да сярэдзіны.*

**ДАГАВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся -во́рышся, -во́рыцца; *зак.* **1.** Прыйсці да згоды шляхам перагавораў. *Д. аб ліквідацыі ракет сярэдняй далёкасці.* **2.** У размове, разважаннях дайсці да якой-н. крайнасці. *Дагаварыліся да таго, што пачалі лаяцца.*

**ДАГАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -во́рыш, -во́рыць; -во́раны; *зак., што* і *без дап.* Скончыць гаварыць; давесці да канца пачатую прамову, выказаць сваю думку да канца. *Дакладчыка перапынілі, не далі д.* ‖ *незак.* **дагаво́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАГАВО́Р**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Пісьмовае або вуснае пагадненне; дамова. *Падпісаць д.* **2.** -а. Дакумент, у якім падаюцца звесткі аб узаемных абавязацельствах; дамова. ‖ *прым.* **дагаво́рны**, -ая, -ае. *На дагаворных пачатках.*

**ДАГАВО́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Работнік, які працуе па дагаворы. ‖ *ж.* **дагаво́рніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **дагаво́рніцкі**, -ая, -ае.

**ДАГАДЗІ́ЦЬ**, -гаджу́, -го́дзіш, -го́дзіць; -го́джаны; *зак., каму-чаму.* Задаволіць каго-н., зрабіўшы яму што-н. прыемнае; улагодзіць. *Д. гасцям.*

**ДАГАЛА́**, *прысл.* **1.** Да голага цела. *Раcпрануцца д.* **2.** Не пакідаючы валасоў. *Абстрыгся д.*

**ДАГАНДЛЯВА́ЦЦА**, -лю́юся, -лю́ешся, -лю́ецца; -лю́йся; *зак.* (разм.). Займаючыся гандлем, разарыцца, зглець. *Д. да торбы.*

**ДАГАНЯ́ЦЬ** *гл.* дагнаць.

**ДАГАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны; *зак., што.* Закончыць абгароджваць. *Д. плот.* ‖ *незак.* **дагаро́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАГАРТАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ту́ецца; *зак.* Дасягнуць патрэбнага гарту. *Сталь дагартавалася.* ‖ *незак.* **дагарто́ўвацца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -аецца.

**ДАГАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* Давесці да патрэбнага гарту. *Д. серп.* ‖ *незак.* **дагарто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **дагарто́ўка**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *ж.* *і* **дагарто́ўванне**, -я, *н.*

**ДАГАРЫ́**, *прысл.* **1.** На спіне, на спіну. *Ляжыць д.* **2.** Угору, уверх. *Як ні ары, абы чорным д.* (прыказка). ◊ **Дагары нагамі** — 1) у перавернутым, перакручаным становішчы (быць і пад.); 2) уніз галавой, кулём (падаць, ляцець і пад.).

**ДАГАРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ры́ць; *зак.* **1.** Згарэць да канца або да якой-н. мяжы. *Дровы дагарэлі. Свечка дагарэла.* **2.** *перан.* Перастаць свяціцца; патухнуць. *Зара дагарэла.* ‖ *незак.* **дагара́ць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -а́е *і* **дага́рваць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ае.

**ДАГАСПАДА́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм., іран.). Давесці гаспадарку да заняпаду.

**ДАГЕСТА́НЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Насельніцтва Рэспублікі Дагестан, якая ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **дагеста́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **дагеста́нскі**, -ая, -ае.

**ДАГІСТАРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да пары, што папярэднічала з'яўленню пісьменнасці. *Д. перыяд.*

**ДАГЛЕ́ДЗЕЦЬ**, -гле́джу, -гле́дзіш, -гле́дзіць; -гле́дзь; -гле́джаны; *зак., каго-што.* **1.** Паклапаціцца аб кім-, чым-н., акружыць увагай, стварыць добры догляд. *Д. хворага. Д. дзяцей.* **2.** Заўважыць, не выпусціць з-пад увагі (звычайна з адмоўем). *Не дагледзіш вокам — заплаціш бокам* (прыказка). ‖ *незак.* **даглядá́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАГЛЯДЗЕ́ЦЬ**, -гляджу́, -глядзі́ш, -глядзі́ць; -глядзі́м, -гледзіце́, -глядзя́ць; -глядзі́; *зак.* Скончыць прагляд чаго-н. *Д. кінафільм.* ‖ *незак.* **дагле́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАГЛЯ́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто даглядае каго-, што-н., наглядае за кім-, чым-н. *Д. коней.* **2.** Службовая асоба, якая даглядае дарожныя рэчы, грузы на мытні. *Мытны д.* ‖ *ж.* **даглядчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **даглядчыцкі**, -ая, -ае.

**ДАГМАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Некрытычнае мысленне, якое апіраецца на догмы. ‖ *прым.* **дагматы́чны**, -ая, -ае.

**ДАГМА́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які мысліць догмамі, схільны да дагматызму.

**ДАГМАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дагматызм. **2.** Заснаваны на палажэннях, якія прымаюцца як бясспрэчныя, як догмы. *Дагматычныя разважанні.* **3.** Катэгарычны, бяздоказны, які не дапускае пярэчанняў. *Д. тон.* ‖ *наз.* **дагматы́чнасць**, -і, *ж.*

**ДАГНА́ЦЬ**, -ганю́, -го́ніш, -го́ніць; -гані́; -гна́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Параўняцца з тым, хто рухаецца і знаходзіцца наперадзе; нагнаць. *Д. уцекача. Д. перадавікоў* (перан.). **2.** *каго-што да каго-чаго.* Гонячы, прымусіць дайсці куды-н., да якога-н. месца. *Д. кароў да лесу.* **3.** *што да чаго.* Дасягнуць якіх-н. паказчыкаў (разм.). *Д. выпрацоўку да двух норм за змену.* **4.** *што.* Падагнаць, наладзіць як трэба. *Д. касу.* **5.** *што да чаго.* Увагнаць што-н. да канца. *Д. цвік да плешкі.* ‖ *незак.* **даганя́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **даго́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (да 4 знач.).

**ДАГО́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Празмерна паслужлівы, угодлівы. *Д. чалавек. Д. тон.* ‖ *наз.* **даго́длівасць**, -і, *ж.*

**ДАГРУЗІ́ЦЬ**, -гружу́, -гру́зіш, -гру́зіць; -гру́жаны; *зак.* **1.** *што.* Скончыць пагрузку чаго-н. *Д. машыну.* **2.** Дадаць грузу да поўнай нагрузкі. *Д. бульбу ў вагон.* ‖ *незак.* **дагружа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **дагру́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.*

**ДАГУКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., каго.* (разм.). Клічучы каго-н., прымусіць адгукнуцца або прыйсці. *У лесе цяжка д.*

**ДАГУЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак., да чаго* (разм.). Легкадумнымі, неасцярожнымі паводзінамі давесці сябе да непрыемнасцей. *Дзеці дагуляліся з агнём да таго, што хату спалілі.* ‖ *незак.* **дагу́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАГУЛЯ́ЦЬ**, -ля́ю, -ля́еш, -ля́е; -ля́ны; *зак., што.* **1.** Скончыць гуляць; правесці астатак часу (канікул, адпачынку і пад.) гуляючы. *Д. вяселле. Д. дні адпачынку.* **2.** Скончыць гульню ў што-н. *Д. партыю ў шахматы.* ‖ *незак.* **дагу́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАГЭ́ТУЛЬ**, *прысл.* **1.** Да гэтага часу. *Дзе ты блукаў д.?* **2.** Да гэтага месца. *Ад горада д. дваццаць кіламетраў.*

**ДАДА́НЫ**, -ая, -ае. У выразах: а) **даданы сказ** — частка складаназалежнага сказа, сінтаксічна падпарадкаваная галоўнаму сказу і звязаная з ім пры дапамозе злучніка або злучальнага слова; б) **даданы член сказа** — член сказа, які паясняе і дапаўняе які-н. з галоўных членаў сказа.

**ДАДА́ТАК**, -тку, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Тое, што прыбаўляецца да чаго-н. *Зрабіць дадаткі. Д. да раздзела кнігі.* **2.** Тое, што прыкладаецца да якога-н. падпіснога выдання. *Часопіс з бясплатным дадаткам.*

**ДАДАТКО́ВЫ**, -ая, -ае. Які з'яўляецца дапаўненнем да чаго-н. асноўнага, галоўнага. *Д. цягнік. Дадатковыя заняткі. Д. набор слухачоў.*

**ДАДА́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае патрэбныя ўласцівасці, якасці, заслугоўвае адабрэння. *Д. бок падзей. Дадатная з'ява.* **2.** Які выражае адабрэнне; станоўчы. *Дадатная ацэнка.* **3.** У матэматыцы: большы за нуль. *Д. лік. Дадатная велічыня.* **4.** Від электрычнага зараду, носьбітамі якога з'яўляюцца пазітрон, пратон і інш. (спец.). *Д. электрычны зарад.*

**ДАДА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -да́сца; -даду́цца; *зак.* (разм.). Далучыцца, дабавіцца да чаго-н. *Да ўсіх бядот дадалося і гэтае няшчасце.*

**ДАДА́ЦЬ**, -да́м, -дасі́, -да́сць; -дадзі́м, -дасце́, -даду́ць; -да́й; -да́дзены; *зак.* **1.** *каго-што* і *чаго.* Даць, зрабіць, сказаць і пад. ў дадатак да чаго-н. *Астатнія грошы дадам заўтра.* **2.** *што да чаго.* Сказаць або напісаць у дадатак да чаго-н. *Да сказанага нечага д.* **3.** *што да чаго.* Прыкласці, далучыць. *Да заявы д. медыцынскае заключэнне.* **4.** *што да чаго.* Скласці лікі. *Да пяці д. чатыры.* ‖ *незак.* **дадава́ць**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць. ‖ *наз.* **дадава́нне**, -я, *н.*

**ДА́ДЗЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Гэты, менавіта гэты. *У д. момант.* **2.** *у знач. наз.* **да́дзеныя**, -ых. Звесткі, паказчыкі, якія характарызуюць каго-, што-н. *Афіцыйныя д. Дакладныя д. Ён мае ўсе д. для навуковай работы.* ○ **Дадзеная велічыня** — у матэматыцы: велічыня, якая загадзя вядомая і служыць для вызначэння іншых.

**ДАДЗЕ́ЦЬ**, -дзе́ну, -дзе́неш, -дзе́не; *зак.* (разм.). Прычыніць непрыемнасць, даняць, дапячы чым-н.; абрыдаць. *Д. да нутра. Сварка гэта ўжо дадзела.* ‖ *незак.* **дадзява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАДЗЯЎБЦІ́**, -дзяўбу́, -дзяўбе́ш, -дзяўбе́; -дзяўбём, -дзеўбяце́, -дзяўбу́ць; -дзёўб, -дзяўбла́, -ло́; -дзяўбі́; -дзяўба́ны; *зак., што.* **1.** Здзяўбці, з'есці да канца. *Куры дадзяўблі зерне.* **2.** Прадзяўбці, скончыць дзяўбці (у 3 знач.). *Д. дзірку долатам.* ‖ *незак.* **дадзёўбваць**, -ваю, -ваеш, -вае.

**ДАДО́ЛУ**, *прысл.* Данізу, на зямлю. *Вецер дрэвы гне д.*

**ДАДО́МУ**, *прысл.* У сваю хату, кватэру; дамоў; на дом. *Пасля работы прыйшоў д. Даць заданне д.* **2.** На радзіму, у родныя мясціны. *Прыехаць д. на пабыўку.*

**ДАДРА́ЦЬ**, -дзяру́, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзяро́м, -дзераце́, -дзяру́ць; -дзяры́; -дра́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Скончыць драць. *Д. паперы.* **2.** Надраць дадаткова, да поўнай меры. *Д. моху. Д. бульбы.* **3.** Знасіць да дзірак (вопратку, абутак і пад.). *Д. боты.* ‖ *незак.* **дадзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАДРУКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* **1.** Надрукаваць да канца або да якога-н. месца. *Д. кнігу. Д. старонку да палавіны.* **2.** Надрукаваць дадаткова. *Д. сто экзэмпляраў тэзісаў.* ‖ *незак.* **дадрукоўваць**, -ваю, -ваеш, -вае. ‖ *наз.* **дадруко́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы (да 2 знач.), *ж.* і **дадруко́ўванне**, -я, *н.*

**ДАДУБІ́ЦЬ**, -дублю́, -ду́біш, -ду́біць; -ду́блены; *зак., што.* Скончыць дубіць, выдубіць да канца. *Д. скуру.* ‖ *незак.* **даду́бліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАДУ́МАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., да чаго.* Разважаючы, прыйсці да якога-н. заключэння, вываду. *Д. да лепшага рашэння.* ‖ *незак.* **даду́мвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАДУРЭ́ЦЦА**, -э́юся, -э́ешся, -э́ецца; *зак.* (разм.). Дурэючы, давесці сябе да непрыемных вынікаў.

**ДАДУШЫ́**, *выкл.* (разм.). Ужыв. як падмацаванне пры запэўніванні каго-н. у чым-н., па знач. блізкае да слова «далібог». *Д., гэта праўда.*

**ДАДЫ́БАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Марудна, з цяжкасцю дайсці да якога-н. месца; давалачыся.

**ДАЕ́СЦІ**, дае́м, даясі́, дае́сць; даядзі́м, даясце́, даяду́ць; дае́ў, -е́ла; дае́ш; дае́дзены; *зак., што.* З'есці да канца, скончыць есці. *Д. верашчаку.* ‖ *незак.* **даяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАЕ́ХАЦЬ**, -е́ду, -е́дзеш, -е́дзе; -е́хаў, -е́хала; -е́дзь; *зак.* Едучы, дабрацца да якога-н. месца; прыехаць. *Да горада можна д. на машыне.* ‖ *незак.* **даязджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Пасудзіна, у якую дояць малако.

**ДАЖАРТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *зак.* (разм.). Многа жартуючы, наклікаць на сябе непрыемнасці. *Глядзі, хлопец, дажартуешся!*

**ДАЖДЖАВА́ЦЬ**, -джу́ю, -джу́еш, -джу́е; -джу́й; *незак., што.* (спец.). Штучна арашаць з дапамогай спецыяльных установак. ‖ *наз.* **даждажва́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **дажджава́льны**, -ая, -ае.

**ДАЖДЖАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Плашч з непрамакальнай тканіны для засцярогі ад дажджу.

**ДАЖДЖАВЫ́** *гл.* дождж.

**ДАЖДЖАМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыбор для вымярэння колькасці атмасферных ападкаў. ‖ *прым.* **дажджаме́рны**, -ая, -ае.

**ДАЖДЖЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Багаты на дажджы, з частымі дажджамі. *Дажджлівая восень.* ‖ *наз.* **дажджлі́васць**, -і, *ж.*

**ДАЖДЖО́М**, *прысл.* **1.** Падобна на дождж, як дождж, у вялікай колькасці. *Іскры сыпаліся д.* **2.** У дождж. *Не хочацца ісці д.*

**ДАЖДЖЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Кропля дажджу. *На шыбах з'явіліся першыя дажджынкі.*

**ДАЖДЖЫ́ЦЬ**, -джы́ць; *безас., незак.* (разм.). Ісці, імжыць (пра дробны дождж). *З самай раніцы дажджыць.*

**ДАЖЫ́НКІ**, -нак. Абрадавае свята заканчэння жніва. *Спраўляць д.* ‖ *прым.* **дажы́нкавы**, -ая, -ае *і* **дажы́начны**, -ая, -ае.

**ДАЖЫ́ЦЦА**, -жыву́ся, -жыве́шся, -жыве́цца; -жывёмся, -жывяце́ся, -жыву́цца; *зак., да чаго* (разм.). Жывучы, дайсці да якога-н. незайздроснага стану, выніку. *Дажыўся да таго, што людзі смяюцца.*

**ДАЖЫ́ЦЬ**, -жыву́, -жыве́ш, -жыве́; -жывём, -жывяце́, -жыву́ць; -жыві́; -жы́ты; *зак.* **1.** *да чаго.* Дасягнуць якога-н. узросту; пражыць да якога-н. тэрміну. *Не дажыў ён да светлых дзён перамогі.* **2.** *што.* Прабыць дзе-н. астатак часу, тэрміну. *Д. тыдзень у санаторыі.* **3.** *што.* Выдаткаваць на пражыццё (разм.). *Д. астатнія грошы.* ‖ *незак.* **дажыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання вадкіх або сыпкіх рэчываў, для раздзялення на дозы. ‖ *прым.* **даза́тарны**, -ая, -ае.

**ДАЗВАНІ́ЦЦА**, -званю́ся, -зво́нішся, -зво́ніцца; *зак., да каго-чаго* і *без дап.* Атрымаць адказ на тэлефонны званок. *Цяжка д. ў канцылярыю.* ‖ *незак.* **дазво́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАЗВА́ННЯ**, *прысл.* Поўнасцю, зусім, начыста. *Ворагі зруйнавалі горад д. Узяць усё д.*

**ДАЗВА́ЦЦА**, -заву́ся, -заве́шся, -заве́цца; -завёмся, -завяце́ся, -заву́цца; -заві́ся; *зак., каго* (разм.). Завучы, клічучы, дамаг-

чыся, каб хто-н. адгукнуўся. *Паўгадзіны зваў і не змог д.*

**ДАЗВÓЛ**, -у, *м.* Згода на што-н.; права зрабіць што-н., а таксама дакумент на такое права. *Д. на камандзіроўку.*

**ДАЗВÓЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* **1.** *што.* Даць дазвол, згадзіцца на што-н. *Д. ад'езд.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Даць магчымасць. *Гатунковае насенне дазволіць павысіць ураджай.* **3. дазвóль(це).** Ужыв. як форма ветлівага звароту да прысутных пры пачатку якога-н. дзеяння. *Дазвольце запрасіць вас на выстаўку.* ‖ *незак.* **дазваля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ДАЗІ́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыбор для вымярэння доз іанізуючых выпрамяненняў. ‖ *прым.* **дазіметры́чны**, -ая, -ае.

**ДАЗІМÉТРЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Галіна прыкладной фізікі, у якой вывучаюцца фізічныя велічыні, што характарызуюць дзеянне іанізуючых выпрамяненняў, а таксама сукупнасць метадаў вымярэння і разліку дозы іанізуючых выпрамяненняў. ‖ *прым.* **дазіметры́чны**, -ая, -ае.

**ДАЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны *і* **ДАЗАВА́ЦЬ**, -ýю, -ýеш, -ýе; *зак.* і *незак.*, *што.* Зрабіць (рабіць) дазіроўку, вызначаць дозу. *Д. лякарства.* ‖ *наз.* **дазі́раванне**, -я, *н. і* **дазава́нне**, -я, *н.*

**ДАЗНА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (спец.). Папярэдняе расследаванне крымінальнай справы для ўстанаўлення факта злачынства і павінных у ім асоб.

**ДАЗНА́ЦЦА**, -на́юся, -на́ешся, -на́ецца; -на́ўся, -на́лася; *зак.* (разм.). Выведаць і сабраць звесткі пра каго-, што-н., даведацца пра каго-, што-н. *Д. пра злачынцаў.* ‖ *незак.* **дазнава́цца**, -наю́ся, -нае́шся, -нае́цца; -наёмся, -наяце́ся, -наю́цца.

**ДАЗÓР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Абход для агляду. *Крэйсер накіраваўся ў д.* **2.** Невялікі атрад, які пасылаецца для аховы і разведкі. *Д. знаёміўся з мясцовасцю.* ‖ *прым.* **дазóрны**, -ая, -ае. *Дазорнае судна. Змяніць дазорнага* (наз.).

**ДАЗÓРАЦ**, -рца, *мн.* -рцы, -рцаў, *м.* Службовая асоба, якая выконвае абавязкі па наглядзе за чым-н., ахове чаго-н. *Д. маяка.* ‖ *прым.* **дазóрчы**, -ая, -ае.

**ДАІМЧА́ЦЦА** *гл.* дамчацца.

**ДАІМЧА́ЦЬ** *гл.* дамчаць.

**ДАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., дóіцца; *незак.* Даваць малако. *Карова яшчэ доіцца.*

**ДАІ́ЦЬ**, даю́, дóіш, дóіць; дóены; *незак.* **1.** Выцэджваць малако з вымя. *Д. кароў.* **2.** *перан.* Настойліва вымагаць у каго-н. сродкі і інш. (разм.). ‖ *зак.* **падаі́ць**, -даю́, -дóіш, -дóіць; -дóены. ‖ *наз.* **дае́нне**, -я, *н. і* **дóйка**, -і, *ДМ* дóйцы, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **даі́льны**, -ая, -ае. *Даільная ўстаноўка.*

**ДАЙГРА́ЦЦА**, -ра́юся, -ра́ешся, -ра́ецца; *зак.* Легкадумнымі паводзінамі давесці сябе да непрыемнасцей. *Дайграўся да таго, што пачалі балець рукі. Глядзі, дайграешся, галубок!* ‖ *незак.* **дайграва́цца**, -раю́ся, -рае́шся, -рае́цца; -раёмся, -раяце́ся, -раю́цца.

**ДАЙГРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.*, *што.* Скончыць іграць. *Д. вальс. Д. першы акт п'есы.* ‖ *незак.* **дайграва́ць**, -раю́, -рае́ш, -рае́; -раём, -раяце́, -раю́ць. ‖ *наз.* **дайграва́нне**, -я, *н.*

**ДАЙМА́ЦЬ** *гл.* даняць.

**ДАЙСЦІ́**, дайду́, дóйдзеш, дóйдзе; дайшóў, дайшла́, -лó; дайдзі́; *зак.* **1.** *да каго-чаго.* Ідучы, накіроўваючыся, дасягнуць чаго-н., якога-н. месца, месцапрызначэння. *Д. да станцыі. Тэлеграма дайшла ў той жа дзень.* **2.** Распаўсюджваючыся, дасягнуць, данесціся (пра гукі, пахі і інш.). *Гук не дайшоў. Дайшлі чуткі аб аварыі самалёта.* **3.** Захавацца, зберагчыся. *Да нас дайшлі старажытныя помнікі пісьменнасці.* **4.** *да чаго.* Дасягнуць якога-н. узроўню. *Тэмпература дайшла да 30°.* **5.** *да каго-чаго.* Пранікнуць у свядомасць, зразумець (разм.). *Сэнс заўвагі да яго не дайшоў. Сваім розумам дайшоў да ісціны.* **6.** *перан., да чаго.* Дасягнуць крайняй ступені праяўлення чаго-н. *Д. да знямогі. Д. да шаленства.* **7.** Даварыцца, дапячыся, даспець (разм.). *Пірог дайшоў. Памідоры дойдуць на сонцы.* **8.** *да чаго.* Дасягнуць пэўнага службовага становішча. *Д. да чына палкоўніка.* **9.** Памерці (разм.). *Доўга мучыўся небарака, пакуль не дайшоў.* ‖ *незак.* **дахóдзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць.

**ДАКАЗА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які можа быць даказаны. *Д. тэзіс.* ‖ *наз.* **даказа́льнасць**, -і, *ж.*

**ДАКАЗА́ЦЬ**, -кажу́, -ка́жаш, -ка́жа; -кажы́; -ка́заны; *зак.* **1.** *што.* Дагаварыць да канца. *Дайце яму д. сваю прамову.* **2.** *што.* Пацвердзіць што-н. фактамі, довадамі. *Ён даказаў правільнасць сваіх меркаванняў. Д. сваю адданасць справе.* **3.** *на каго (што).* Зрабіць данос, нагаварыць на каго-н. (разм.). **4.** (часцей з адмоўем). Зраўняцца з кім-н. у чым-н., зрабіць так, як не зробіць ніхто (разм.). *Мая жонка пячэ такія пірагі, што і іншы кандытар не дакажа.* ‖ *незак.* **дака́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАКА́ЗЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто даказвае на каго-н., даносіць, нагаворвае. ‖ *ж.* **дака́зчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **дака́зчыцкі**, -ая, -ае.

**ДАКАНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* (разм.). **1.** *каго (што).* Давесці да знямогі, да пагібелі; загубіць. *Няволя даканала яго.* **2.** *што.* З цяжкасцю скончыць, завяршыць што-н. *Даканалі ўборку бульбы.* ‖ *незак.* **дакóнваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАКАПА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.*, *да чаго.* **1.** Капаючы, дасягнуць чаго-н., знайсці што-н. *Д. да клада.* **2.** *перан.* Даведацца, дашукацца (разм.). *Д. да сутнасці.* ‖ *незак.* **дакóпвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАКАРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.*, *каго-што.* Папракаць, выказваючы нездавальненне кім-, чым-н. *Так няможна рабіць, — дакарала бабуля ўнука.* ‖ *наз.* **дакара́нне**, -я, *н.*

**ДАКАРЫ́ЦЬ**, -кару́, -кóрыш, -кóрыць; -кóраны; *зак.*, *каго-што.* Скончыць карыць[1]. *Д. жэрдзе.*

**ДАКАСІ́ЦЦА**, -кашу́ся, -кóсішся, -кóсіцца; -касі́ся; *зак.*, *да чаго* (разм.). **1.** Косячы, дайсці да якога-н. стану, да якіх-н. вынікаў. *Д. да знямогі.* **2.** Косячы, дайсці да якога-н. месца, да пэўнай мяжы. *Д. да дарогі.* ‖ *незак.* **дакóшвацца**, -ваюся, -ваешся, -ваецца.

**ДАКАСІ́ЦЬ**, -кашу́, -кóсіш, -кóсіць; -кóшаны; *зак.* **1.** Закончыць касьбу чаго-н. *Д. пожню.* **2.** Скасіць да пэўнага месца, да пэўнай мяжы. *Д. да канавы.*

**ДАКАСТРЫ́ЧНІЦКІ**, -ая, -ае. Які адносіцца да часу, што папярэднічаў Кастрычніцкай рэвалюцыі. *Д. перыяд.*

**ДАКАЦІ́ЦЦА**, -качу́ся, -кóцішся, -кóціцца; *зак.* **1.** Коцячыся, дасягнуць якога-н. месца. *Клубок дакаціўся да парога.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Данесціся, пачуцца (пра гукі грому, гармат і пад.). *Здалёку дакаціўся грукат гармат.* **3.** *перан.* Апусціцца (у 2 знач.), дайсці да непрыемнасцей (разм.). *Д. да злачынства.* ‖ *незак.* **дакóчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАКАЦІ́ЦЬ**, -качу́, -кóціш, -кóціць; -кóчаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Коцячы, перамясціць да якога-н. месца. *Д. бочку да склепа.* **2.** Хутка даехаць куды-н. (разм.). *За гадзіну дакацілі да горада.* ‖ *незак.* **дакóчваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ДАКІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; дакі́нь; -нуты; *зак.*, *што.* Кінуўшы, папасці ў якое-н. месца. *Д. мяч да варот.* ‖ *незак.* **дакіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **дакі́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАКЛА́Д**[1], -а, *М* -ла́дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Публічнае паведамленне: разгорнутае асвятленне якой-н. тэмы. *Навуковы д. Абмеркаванне даклада.* **2.** Вуснае ці пісьмовае паведамленне кіраўніку ўстановы аб службовых справах. *Д. дырэктару.* **3.** Паведамленне аб прыходзе наведвальніка. *Без даклада не ўваходзіць.* ‖ *прым.* **дакладны́**, -а́я, -óе (да 2 знач.). *Дакладная запіска.*

**ДАКЛА́Д**[2], -у, *М* -дзе, *м.* Дадатковы матэрыял пры пашыве вопраткі, абутку (падкладка, гузікі і інш.).

**ДАКЛА́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адпавядае ісціне, правільны. *Дакладная вага. Д. гадзіннік.* **2.** Поўнасцю адпаведны ўзору, правілам, патрабаванням. *Дакладная копія. Д. пераклад.* **3.** Канкрэтны, вычарпальны, не прыблізны. *Д. ўлік. Д. адрас.* **4.** Акуратны, пунктуальны. *Д. выканаўца.* **5.** У якім асобныя элементы выразна адздзелены адзін ад аднаго. *Дакладныя рухі. Дакладныя прыёмы.* ○ **Дакладныя навукі** — навукі, заснаваныя на матэматычных метадах. ‖ *наз.* **дакла́днасць**, -і, *ж.*

**ДАКЛАДНЫ́** *гл.* даклад[1].

**ДАКЛА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які робіць даклад (у 1 знач.). ‖ *ж.* **дакла́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ДАКЛА́САВЫ**, -ая, -ае. Першабытнаабшчынны, які існаваў або адносіўся да

падзелу грамадства на класы. *Дакласавае грамадства.*

**ДАКЛІ́КАЦЦА**, -клі́чуся, -клі́чашся, -клі́чацца; -клі́чся; *зак., каго* (разм.). Клічучы, вымусіць адгукнуцца. *Цяжка яго д.*

**ДАКЛЫ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Павольна, з цяжкасцю дайсці да якога-н. месца. *Ледзь даклыпаў да хаты.*

**ДАКЛЯРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што* і *з інф.* (разм.). Паабяцаць (абяцаць) зрабіць што-н. *Дакляраваў абавязкова прыйсці.* ‖ *незак.* таксама **дакляро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАКО́НЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што.* **1.** Давесці да канца, завяршыць пачатае. *Д. крыць страху.* **2.** Дабіць, даканаць, прыкончыць (разм.). *Д. параненага звера.* ‖ *незак.* **дако́нчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАКО́ПКІ**, -пак. Завяршэнне ўборкі бульбы.

**ДАКО́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Папрок, выказаны каму-н. за што-н. *Выказаць д. за дрэнную работу.*

**ДАКО́РЛІВЫ**, -ая, -ае. Які выражае дакор. *Д. позірк.* ‖ *наз.* **дако́рлівасць**, -і, *ж.*

**ДАКО́СКІ**, -сак *і* -скаў. Завяршэнне касьбы. *Касцы справілі д.*

**ДАКРАНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -нёшся, -нёцца; -нёмся, -няцёся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** *да каго-чаго.* Даткнуцца да каго-, чаго-н. *Печ так нагрэлася, што не д.* **2.** *да чаго.* Паспытаць, паспрабаваць што-н. (звычайна з адмоўем). *Вельмі спяшаліся, да пачастунку нават не дакрануліся.* ‖ *незак.* **дакрана́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДАКРАСАВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -су́е; *зак.* Скончыць красаваць, адкрасаваць (пра збажыну). *Дакрасавала жыта.* ‖ *незак.* **дакрасо́ўваць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ае.

**ДАКРО́ІЦЬ**, -кро́ю, -кро́іш, -кро́іць; -кро́ены; *зак., што.* **1.** Закончыць кройку чаго-н. *Д. сукенку.* **2.** Адрэзаць дадатковую частку ад цэлага або парэзаць што-н. дадаткова на кавалкі. *Д. хлеб.* ‖ *незак.* **дакро́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАКРЫЧА́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыцёся, -ча́цца; -чы́ся; *зак.* (разм.). **1.** *каго.* Моцна клічучы каго-н., вымусіць адклікнуцца. *Крычаў, крычаў, так і не дакрычаўся вас.* **2.** *да чаго.* Крыкам давесці сябе да непажаданых вынікаў. *Д. да хрыпаты.*

**ДАКТАРА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая залічана ў дактарантуру для падрыхтоўкі дысертацыі на саісканне вучонай ступені доктара навук. ‖ *ж.* **дактара́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дактара́нцкі**, -ая, -ае.

**ДАКТАРАНТУ́РА**, -ы, *ж.* Форма павышэння кваліфікацыі асобы з мэтай атрымання вучонай ступені доктара навук.

**ДАКТАРА́Т**, -у, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Іспыты на ступень доктара ў вышэйшай школе Заходняй Еўропы.

**ДАКТО́РКА** *і* **ДО́КТАРКА**, -і, *мн.* -і, -рак, *ж.* (разм.). Жанчына-ўрач. *Прыступіла да працы новая д.*

**ДАКТРЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́н, *ж.* Вучэнне, навуковая філасофская, палітычная, ідэалагічная і пад. канцэпцыя. *Ваенная д.*

**ДАКТРЫНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Чалавек, які ўпарта трымаецца якой-н. дактрыны, догмы; схаласт. ‖ *прым.* **дактрынёрскі**, -ая, -ае.

**ДАКТРЫНЁРСТВА**, -а, *н.* (кніжн.). Дактрынёрскія адносіны да рэчаіснасці; дагматызм.

**ДАКТЫЛАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Своеасаблівая форма маўлення глуханямых: узнаўленне пры дапамозе пальцаў рук арфаграфічнай формы слова; ручная азбука. ‖ *прым.* **дактылалагі́чны**, -ая, -ае.

**ДАКТЫЛАСКАПІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Вывучэнне будовы ліній скуры на ўнутраным баку пальцаў рук, а таксама метад устанаўлення асобы па адбітках пальцаў. ‖ *прым.* **дактыласкапі́чны**, -ая, -ае. *Д. аналіз.*

**ДА́КТЫЛЬ**, -я, *м.* (спец.). Трохскладовая вершаваная стапа з націскам на першым складзе ў сілаба-танічным вершаскладанні. ‖ *прым.* **дактылі́чны**, -ая, -ае. *Дактылічная страфа.*

**ДАКУ́КА**, -і, *ДМ* -ку́цы, *ж.* (разм.). **1.** Турбота, клопат. *Спіць дзіця, не ведае дакукі.* **2.** Нуда, маркота. *З дакукі піша пісьмы.* **3.** Надакучлівая просьба, справа. *Яго заявы — адна д.*

**ДАКУ́ЛЬ**, *прысл.* (разм.). **1.** Да якога месца. *Д. ідзе аўтобус?* **2.** Да якога часу. *Д. яго чакаць?*

**ДАКУМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дзелавая папера, што пацвярджае права на што-н. *Апраўдальны д. Д. аб адукацыі.* **2.** Пасведчанне, што пацвярджае асобу прад'яўніка. *Праверка дакументаў.* **3.** Пісьмовыя помнікі, якія сведчаць пра гістарычныя падзеі. *Старажытнабеларускія граматы — гістарычныя дакументы. Архіўныя дакументы.*

**ДАКУМЕНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што.* Абгрунтаваць (абгрунтоўваць) дакументамі (у 1 знач.).

**ДАКУМЕНТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца дакументам. *Д. матэрыял.* **2.** Заснаваны на дакументах, на фактах, уласцівы дакументу. *Д. фільм. Дакументальная дакладнасць.* ‖ *наз.* **дакумента́льнасць**, -і, *ж.*

**ДАКУМЕНТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Абгрунтаванне чаго-н. пры дапамозе дакументаў (у 1 знач.). *Падрабязная д.* **2.** *зб.* Дакументы (у 1 знач.). *Тэхнічная д.* ‖ *прым.* **дакументацы́йны**, -ая, -ае.

**ДАКУЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* (разм.). Надакучваць каму-н., станавіцца непрыемным. *Дзеці ўвесь дзень дакучалі бацьку. За што возьмецца, усё яму адразу ж дакучае.* ‖ *зак.* **даку́чыць**, -чу, -чыш, -чыць.

**ДАКУ́ЧЛІВЫ**, -ая, -ае. Які дакучае, назаляе. *Восеньскія дакучлівыя дажджы.* ‖ *наз.* **даку́члівасць**, -і, *ж.*

**ДАЛАЖЫ́ЦЬ**[1], -ажу́, -о́жыш, -о́жыць; -о́жаны; *зак.* **1.** *што, аб чым, пра што.* Паведаміць каму-н. аб чым-н. *Д. аб ходзе справы. Д. пра здарэнне.* **2.** *аб кім, пра каго.* Паведаміць аб прыходзе наведвальніка. *Далажыце пра мяне дырэктару.* ‖ *незак.* **дакла́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАЛАЖЫ́ЦЬ**[2], -лажу́, -ло́жыш, -ло́жыць; *зак., што* і *чаго.* Палажыць дадаткова; дадаць, дакласці. *Д. у слоік варэнне. Д. яшчэ дзясятку.* ‖ *незак.* **дакла́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАЛАКО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочы, які капае магілу на могілках. *Далакопы ўзяліся за рыдлёўкі.*

**ДАЛАМІ́Т**, -у, *М* -мі́це, *м.* Мінерал шаравата-белага колеру, які складаецца з вуглякіслых солей кальцыю і магнію. ‖ *прым.* **даламі́тавы**, -ая, -ае. *Даламітавыя залежы.*

**ДАЛЕДАВІКО́ВЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца або існаваў да перыяду з'яўлення ледавікоў. *Д. перыяд.*

**ДАЛЕ́Й**, *прысл.* **1.** *Выш. ст.* да прыслоўя далёка. *Бачыць вока далёка, а розум яшчэ д.* (прыказка). **2.** Наперадзе, на пэўнай адлегласці. *Д., за жытам, пачынаецца бярэзнік.* **3.** Затым, потым, у далейшым. *Д. усё будзе добра.* **4.** Працягваючы пачатае. *Чытаць д.* ◊ **І гэтак далей** (скарочана і г.д.) — ужыв. ў канцы пералічэння як указанне на тое, што пералічэнне можа быць працягнута.

**ДАЛЕ́ЙШЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца працягам папярэдняга; наступны. *Далейшыя перагаворы.* **2.** *у знач. наз.* **дале́йшае**, -ага, *н.* Будучыня. *У далейшым будзем рабіць інакш.*

**ДА́ЛЕЧ**, -ы, *мн.* да́лечы, -аў, *ж.* (разм.). **1.** Далёкае месца, аддаленая мясцовасць. *Не паеду ў такую д.* **2.** Вялікая прастора, прасцяг. *Блакітная д. над галавой.*

**ДАЛЕЧЫНЯ́**, -і́, *мн.* далячы́ні, -чы́нь *і* -яў *і* **ДАЛЯЧЫ́НЬ**, -і, *мн.* -далячы́ні, -ей *і* -яў, *ж.* Тое, што і *даль. Разглядзець далечыню (далячынь) у бінокль.*

**ДАЛЁКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. далёкі (у 1 знач.), з далёкай адлегласці, напр.: *далёкадзейны, далёкапрывозны, далёкаструменны, далёкаўсходні.*

**ДАЛЁКА**, *прысл.* **1.** На вялікай адлегласці ад чаго-н. *Школа знаходзіцца д.* **2.** *у знач. вык.* Пра значную адлегласць да каго-, чаго-н. *Д. пайсці* (таксама перан.: дабіцца поспеху у жыцці). *Д. зайсці* (таксама перан.: выйсці за межы дапушчальнага). *Д. завесці* (таксама перан.: мець сур'ёзныя вынікі). *Далей у лес — больш дроў* (прыказка). *Да вёскі яшчэ д.* **3.** *у знач. вык.* Пра няскоры надыход чаго-н. *Да зімы д.* **4.** *безас., у знач. вык.* Шмат чаго не хапае ў параўнанні з кім-, чым-н. *Мне да цябе д.* ◊ **Далёка хадзіць не трэба** *за чым* (разм.) — лёгка

прывесці прыклад, доказ для пацвярджэння чаго-н. *За прыкладамі далёка хадзіць не трэба.* **Далёка не заедзеш** *чым* або *на чым* (разм.) — многага не даб'ешся, не будзе толку. *На хлусні далёка не заедзеш.*

**ДАЛЁКАЎСХО́ДНІ**, -яя, -яе. Які знаходзіцца на Далёкім Усходзе, мае адносіны да Далёкага Усходу. *Д. клімат. Далёкаўсходнія гарады.*

**ДАЛЁКІ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца, адбываецца на вялікай адлегласці або які мае вялікую працягласць. *Далёкая планета. Д. стрэл. Далёкая дарога. На далёкіх подступах* (таксама перан.). *Далёкая старонка без ветру сушыць* (прыказка). **2.** Аддзелены ад сучаснага вялікім прамежкам часу. *Далёкае мінулае.* **3.** Які не мае блізкіх кроўных сувязей. *Д. родзіч.* **4.** *перан.* Які мае мала агульнага з кім-, чым-н. *Мы з ім далёкія людзі. Д. ад навукі чалавек.* **5.** *ад чаго.* Які не мае намеру рабіць што-н., думаць пра што-н. *Я д. ад думкі абражаць вас.* **6.** (толькі з адмоўем). Разумны, кемлівы (разм.). *Дзяўчына не надта далёкая.* ‖ *наз.* **далёкасць**, -і, *ж.* (да 1—3 знач.).

**ДАЛІБО́Г**, *выкл.* (разм.). Ужыв. для запэўнівання ў чым-н., пацверджання чаго-н. *Д., я тут ні пры чым.*

**ДАЛІКА́ТНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Быць залішне далікатным; цырымоніцца. ‖ *зак.* **падаліка́тнічаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАЛІКА́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Ветлівы, ласкавы ў абыходжанні з людзьмі. *Гэта спакойны, д. чалавек.* **2.** Які патрабуе асцярожных, тактоўных адносін (разм.). *Я да вас па далікатным пытанні.* **3.** Складаны, тонкі, выпеставаны. *Далікатныя рукі. Чалавек далікатнага складу.* **4.** Кволы, мяккі, прыемны навобмацак. *Чаравікі з далікатнай скуры.* ‖ *наз.* **даліка́тнасць**, -і, *ж.*

**ДАЛІКАТЭ́С**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рэдкая, вытанчаная, вельмі смачная страва. *Пакаштуйце нашых далікатэсаў.* ‖ *прым.* **далікатэ́сны**, -ая, -ае.

**ДАЛІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -лі́н, *ж.* Роўная прастора ўздоўж рачнога ложа або падоўжаная ўпадзіна паміж гор ці ўзгоркаў. *Рачная д. Горная д.* ◊ **Сіліконавая даліна** — цэнтр высокіх тэхналогій з развітай інфраструктурай, у якім у асноўным размешчаны прадпрыемствы электроннай прамысловасці. ‖ *прым.* **далі́нны**, -ая, -ае. *Далінныя лугі.*

**ДАЛІ́ЦЬ**, -лію́, -ліе́ш, -ліе́; -ліём, -ліяце́, -лію́ць *і* далью́, -лье́ш, -лье́; -льём, -льяце́, -лью́ць; далі́ў, -ліла́, -ліло́, -лілі́; далі́, -лі́це; -лі́ты; *зак., што* і *чаго.* Налівваючы, дабавіць да якога-н. узроўню. *Д. гаршчок. Д. у шклянку заваркі.* ‖ *незак.* **даліва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАЛО́НЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Унутраны бок кісці рукі. *Закрыць твар далонямі.* ‖ *памянш.* **дало́нька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек. ‖ *прым.* **дало́невы**, -ая, -ае.

**ДАЛО́Ў**, *прысл.* (разм.). **1.** На зямлю, на падлогу. *Камень з воза паляцеў д.* **2.** Прэч, вон. *Д. штурмаўшчыну! Шапкі д.!*

**ДАЛУЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прызначаны для далучэння. *Д. провад.* **2.** У граматыцы: які з'яўляецца дапаўненнем, дадаткам да чаго-н. або які служыць для далучэння ці заснаваны на спосабе далучэння. *Далучальныя адносіны. Д. злучнік. Д. сказ.*

**ДАЛУЧЫ́ЦЦА**, -лучу́ся, -лу́чышся, -лу́чыцца; *зак., да каго-чаго.* **1.** Дабавіцца да чаго-н., стварыць адно цэлае з чым-н. *Да групы экскурсантаў далучылася яшчэ пяць чалавек.* **2.** Згадзіўшыся з кім-, чым-н., прымкнуць. *Д. да грамадскага жыцця краіны. Д. да дэманстрантаў.* ‖ *незак.* **далуча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **далучэ́нне**, -я, *н.*

**ДАЛУЧЫ́ЦЬ**, -лучу́, -лу́чыш, -лу́чыць; -лу́чаны; *зак., што.* **1.** Прылучыць да чаго-н., прыбавіць. *Д. дакументы да справы.* **2.** Пазнаёміць з чым-н. *Д. дзяцей да музычнай культуры.* ‖ *незак.* **далуча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **далучэ́нне**, -я, *н.*

**ДАЛЬ**, -і, *мн.* -і, -яў *і* -ей, *ж.* **1.** Далёкі прастор; прасцяг, шыр. *Далі леглі сінім морам.* **2.** (звычайна з азначэннем). Далёкае месца. *Блакітная д. Праклалі шлях у касмічныя далі.*

**ДАЛЬБО́Г**, *выкл.* (разм.). Тое, што і *далібог.*

**ДАЛЬНАБА́ЧНЫ**, -ая, -ае. Здольны прадбачыць вынікі чаго-н. *Д. чалавек.* ‖ *наз.* **дальнаба́чнасць**, -і, *ж.*

**ДАЛЬНАБО́ЙНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для стральбы на далёкую адлегласць. *Дальнабойная артылерыя.* ‖ *наз.* **дальнабо́йнасць**, -і, *ж.*

**ДАЛЬНАЗО́РКІ**, -ая, -ае. Які бачыць аддаленыя прадметы лепш, чым блізкія. *Д. чалавек.* ‖ *наз.* **дальназо́ркасць**, -і, *ж.*

**ДАЛЬНАМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вызначэння адлегласці без непасрэднага вымярэння. *Аптычны д. Акустычны д.* ‖ *прым.* **дальнаме́рны**, -ая, -ае.

**ДАЛЬТАНІ́ЗМ**, -у, *м.* Недахоп зроку, звязаны з няздольнасцю адрозніваць некаторыя колеры, звычайна чырвоны і зялёны.

**ДАЛЬТО́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які хварэе на дальтанізм. ‖ *ж.* **дальтані́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ДАЛЯГЛЯ́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прастора, якую можна акінуць вокам; усё бачнае навокал наглядальніка. *З гары адчыняецца шырокі д.*

**ДАЛЯЦЕ́ЦЬ**, -лячу́, -ляці́ш, -ляці́ць; -ляці́м, -лецце́, -ляця́ць; -ляці́; *зак.* **1.** Лятучы, дасягнуць якога-н. месца. *Д. да Хабараўска.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Распаўсюдзіцца, дасягнуць якога-н. месца (пра гукі, пахі і пад.). *З вуліцы даляцелі трывожныя крыкі.* ‖ *незак.* **далята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАЛЯЧЫНЬ** *гл.* далечыня.

**ДА́МА**, -ы, *мн.* -ы, дам, *ж.* **1.** Жанчына, якая належыць да багатага асяроддзя ці інтэлігенцыі. *Свецкая д.* **2.** Замужняя жанчына ў адрозненне ад дзяўчыны. **3.** Жанчына, якая танцуе ў пары з кавалерам. *Кавалеры запрашаюць дам.* **4.** Ігральная карта з відарысам жанчыны. *Чырвовая д.* ‖ *ласк.* і *фам.* **да́мачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **да́мскі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ДАМАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* У славянскай міфалогіі: добры або злы дух, што жыве ў доме.

**ДАМАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* Доўгая скрыня з дошак, у якую кладуць нябожчыка для пахавання; труна. *Д. павольна плыла на плячах жывых.* ◊ **Хоць у дамавіну кладзі** (разм.) — пра схуднелага, хваравітага чалавека. ‖ *прым.* **дамаві́нны**, -ая, -ае.

**ДАМАГЧЫ́СЯ**, -магу́ся, -мо́жашся, -мо́жацца; дамо́гся, -магла́ся, -ло́ся; дамажы́ся; *зак., чаго* і *з дадан.* Шляхам настойлівых намаганняў дабіцца пастаўленай мэты. *Д. свайго.* ‖ *незак.* **дамага́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДАМАЛО́ТКІ**, -так *і* -ткаў. Завяршэнне малацьбы. *Спраўляць д.*

**ДАМАРО́СЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Вырашчаны дома, у сваёй гаспадарцы. *Д. тытунь.* **2.** *перан.* Пасрэдны, невысокай вартасці; які навучыўся чаму-н. саматугам. *Д. майстар.*

**ДАМАСЕ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які любіць сядзець дома, мала бывае на людзях. *Ён апошнія гады зрабіўся дамаседам.* ‖ *ж.* **дамасе́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак.

**ДАМАСТРО́Й**, -ю, *м.* Патрыярхальна-суровы і косны сямейна-бытавы ўклад жыцця. ‖ *прым.* **дамастро́еўскі**, -ая, -ае. *Дамастроеўскія норавы.*

**ДАМАФО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тэхнічнае прыстасаванне, якое звязвае ўваходныя дзверы з кватэрай.

**ДАМАЧА́ДЦЫ**, -аў, *адз.* дамача́дзец, -дца, *м.* (уст.). Члены сям'і, а таксама людзі, якія жывуць у чыёй-н. сям'і на правах яе членаў. *Ён прыехаў з усімі сваімі дамачадцамі.*

**ДАМА́ШНІ**, -яя, -яе. **1.** Які адносіцца да дома, сям'і, прызначаны для карыстання дома. *Д. тэлефон. Д. халат.* **2.** Зроблены, прыгатаваны дома або прызначаны для выканання дома. *Д. хлеб. Дамашняе заданне.* **3.** Сямейны, прыватны. *Дамашняе выхаванне.* **4.** Свойскі, не дзікі. *Дамашнія жывёлы.* **5.** *у знач. наз.* **дама́шнія**, -іх. Члены сям'і (разм.). *Нашы дамашнія.*

**ДА́МБА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Гідратэхнічнае збудаванне ў выглядзе штучнага насыпу для засцярогі мясцовасці ад затаплення вадой або для агароджвання вадасховішчаў. *Загараджальная д.* ‖ *прым.* **да́мбавы**, -ая, -ае.

**ДАМЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Частка рэсурсаў сеткі інтэрнэт, якая кіруецца адным серверам. **2.** Частка сімвальнага прадстаўлення адраса сайта, аддзеленая кропкай. ‖ *прым.* **даме́нны**, -ая, -ае.

**ДАМЕ́ШАК**, -шку, *мн.* -шкі, -шкаў, *м.* Тое, што і *дамешка.* ‖ *прым.* **даме́шкавы**, -ая, -ае.

**ДАМЁШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -шкі, -шак, *ж.* Тое, што прыбаўлена, прымешана да чаго-н. *Мука з дамешкай вотруб'я.* ‖ *прым.* **дамёшкавы**, -ая, -ае.

**ДАМІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; *незак.* **1.** Мець перавагу, быць галоўным, асноўным. *У агульнай мелодыі дамінавалі гукі кларнета.* **2.** Узвышацца над акаляючай мясцовасцю. *Гара дамінавала над горадам.* ‖ *наз.* **дамінава́нне**, -я, *н.*

**ДАМІНА́НТА**, -ы, *ДМ* -нце, *мн.* -ы, -на́нт *і* -аў, *ж.* (кніжн.). Асноўная, найважнейшая ідэя, прыкмета або частка чаго-н. ‖ *прым.* **даміна́нтны**, -ая, -ае.

**ДАМІНІЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Самакіравальная дзяржава, якая ўваходзіць у склад Брытанскай імперыі і залежыць ад яе ў сваёй унутранай і знешняй палітыцы. *Д. Новая Зеландыя. Канадскі д.*

**ДАМІНО́**[1], *нескл., н.* Гульня, у якой трэба выкласці 28 пластмасавых або касцяных пласцінак, на якіх нанесены ачкі, а таксама самі пласцінкі. *Гуляць у д.*

**ДАМІНО́**[2], *нескл., н.* Маскарадны касцюм у выглядзе доўгага плашча з рукавамі і капюшонам, а таксама чалавек у такім касцюме. *Апрануты ў д. Д. ў масцы.*

**ДАМІНО́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Аматар гуляць у даміно[1]. *Заядлы д.* ‖ *ж.* **даміно́шніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДА́МКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* У шашачнай гульні: шашка, якая дайшла да апошняга рада клетак праціўніка і набыла права рухацца на любую колькасць клетак. *Прайсці ў дамкі.*

**ДАМКА́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: дамавы камітэт (грамадская арганізацыя жыхароў). *Пасяджэнне дамкама.* ‖ *прым.* **дамка́маўскі**, -ая, -ае.

**ДАМКРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прылада для пад'ёму цяжару на невялікую вышыню. *Рэчны д. Гідраўлічны д.* ‖ *прым.* **дамкра́тны**, -ая, -ае.

**ДАМО́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -о́ў *і* -о́ваў, *ж.* **1.** Вусная або пісьмовая дамоўленасць аб узаемных абавязацельствах. *Д. на пастаўку лесу.* **2.** Дакумент, у якім зафіксаваны ўмовы аб узаемных абавязацельствах. *Мірная д.*

**ДАМО́ВІЦЦА**, -мо́ўлюся, -мо́вішся, -мо́віцца; -мо́ўся; *зак.* Прыйсці да згоды ў выніку перагавораў; дагаварыцца. *Дамовіліся з'ездзіць на паляванне.* ‖ *незак.* **дамаўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ДАМО́К** *гл.* дом.

**ДАМО́КЛАЎ**, -ава. У выразе: **дамоклаў меч** (кніжн.) — пра пастаянную небяспеку, пагрозу [са старажытнага падання пра зайздроснага Дамокла, над якім вісеў на конскім воласе меч]. *Знаходзіцца пад дамоклавым мячом.*

**ДАМО́Ў**, *прысл.* Да сябе, у свой дом, у сваю сям'ю; на радзіму. *Хлопцы скончылі работу і пайшлі д. Вярнуцца з-за мяжы д.*

**ДАМО́ЎЛЕНАСЦЬ**, -і, *ж.* Пагадненне на падставе папярэдніх перагавораў. *Дзейнічаць на аснове дамоўленасці.*

**ДАМРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на домры. ‖ *ж.* **дамры́стка**, -і, *ДМ* -стцы, *мн.* -і, -так.

**ДА́МСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дама. **2.** Прызначаны для абслугоўвання жанчын. *Д. кравец. Д. цырульнік.*

**ДАМЧА́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца; -чы́ся *і* **ДАІМЧА́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; *зак.* (разм.). Вельмі хутка дабегчы, даехаць, даляцець да якога-н. месца. *Цягнік хутка дамчаўся да сталіцы.*

**ДАМЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́ *і* **ДАІМЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Вельмі хутка даставіць да якога-н. месца. *Шафёр умомант дамчаў пасажыра да вакзала.* **2.** Тое, што і *дамчацца, даімчацца. Стаеннік вырваўся і хутка даімчаў да вадапою.*

**ДАНАСІ́ЦЬ**, -нашу́, -но́сіш, -но́сіць; -насі́; -но́шаны; *зак.* **1.** *што.* Скончыць насіць што-н., перанесці поўнасцю з аднаго месца на другое. *Д. салому ў пуню.* **2.** *што.* Канчаткова знасіць (вопратку, абутак). *Д. боты да дзірак.* **3.** *каго.* Нарадзіць дзіця не раней за нармальны тэрмін. *Парадзіха данасіла дзіця.* ‖ *незак.* **дано́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДА́НАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Тое, што дадзена, што маецца ў наяўнасці; аб'ектыўная рэчаіснасць.

**ДАНЕ́СЦІ**[1], -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; *зак.* **1.** *каго-што.* Несучы, даставіць да якога-н. месца. *Д. рэчы да вагона.* **2.** *што.* Зрабіць чутным (пра гукі, пах і пад.). *Вецер данёс смалісты пах дыму.* **3.** *перан.* Давесці да свядомасці, зрабіць зразумелым. *Д. думку да слухача.* ‖ *незак.* **дано́сіць**, -но́шу, -но́сіш, -но́сіць.

**ДАНЕ́СЦІ**[2], -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; *зак.* **1.** Зрабіць службовае данясенне аб чым-н. *Разведка данесла камандаванню пра набліжэнне праціўніка.* **2.** *на каго (што).* Зрабіць данос; тайна паведаміць. *Здраднікі данеслі паліцаям пра яго.* ‖ *незак.* **дано́сіць**, -но́шу, -но́сіш, -но́сіць.

**ДАНЕ́СЦІСЯ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -нясе́цца; -нёсся, -не́слася; *зак.* **1.** Зрабіцца чутным (пра гукі, пахі і пад.). *Да яго слыху данеслася стракатанне сарокі. З навакольных лугоў данёсся пах сена.* **2.** Распаўсюдзіцца, стаць вядомым. *Данеслася радасная вестка.* ‖ *незак.* **дано́сіцца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -сіцца.

**ДАНІ́ЗУ**, *прысл.* (разм.). Уніз, к долу, да самага нізу. *Зверху д.*

**ДАНІ́НА**, -ы, *ж.* **1.** Натуральны або грашовы падатак, які плаціла насельніцтва свайму князю, феадалу або пераможцу ў бітве (гіст.). *Абкласці данінай. Сам Царград плаціў даніну Полацку.* **2.** *каму.* Ахвяраванне, дар каму-н. *Хадзіў, зняўшы шапку, і збіраў даніну.* **3.** *перан., чаго.* Тое, што трэба аддаць як належнае; аддзяка за што-н. *Д. павагі. Д. ўдзячнасці людской.* **4.** *перан., чаму.* Вымушаная ўступка чаму-н. *Д. модзе. Д. часу.*

**ДАНО́С**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тайнае паведамленне ўладам аб чыіх-н. недазволеных, процізаконных дзеяннях. *Д. на падпольшчыкаў.*

**ДАНО́СЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які зрабіў данос. ‖ *ж.* **дано́счыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **дано́счыцкі**, -ая, -ае.

**ДАНТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Зубны ўрач. ‖ *ж.* **данты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **данты́сцкі**, -ая, -ае.

**ДА́НЫЯ**, -ых. Звесткі, паказчыкі, неабходныя для абгрунтавання, абагульнення і пад.

**ДАНЮ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). **1.** Празмерна доўга і часта нюхаючы, дайсці да непрыемных вынікаў. **2.** *перан.* Дазнацца, разведаць пра што-н. якім-н. непрыстойным спосабам. *Паліцыя данюхалася аб прыходзе партызанскага разведчыка.* ‖ *незак.* **даню́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАНЯСЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Вуснае ці пісьмовае паведамленне якіх-н. звестак кіраўніцтву. *Паслаць д. ў штаб.*

**ДАНЯ́ЦЬ**, дайму́, до́ймеш, до́йме; даня́ў, даняла́, -ло́; даймі́; даня́ты; *зак., каго-што.* Змучыць, дапячы, вывесці з раўнавагі. *Як дойме ліха, прарэжуцца зубы* (з нар.). ‖ *незак.* **дайма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАПАЗНА́**, *прысл.* (разм.). Да позняга часу. *Засядзеліся д.*

**ДАПАЛАСКА́ЦЦА**, -лашчу́ся, -ло́шчашся, -ло́шчацца; -лашчы́ся; *зак.* Канчаткова, поўнасцю выпаласкацца.

**ДАПАЛАСКА́ЦЬ**, -ашчу́, -ло́шчаш, -ло́шча; *зак.* Канчаткова выпаласкаць. *Д. бялізну.*

**ДАПАМАГЧЫ́**, -магу́, -мо́жаш, -мо́жа; -мо́г, -магла́, -ло́; *зак.* **1.** *каму.* Аказаць дапамогу, пасадзейнічаць у чым-н. *Д. ў рабоце. Д. распрануцца.* **2.** *каму.* Падтрымаць матэрыяльнымі сродкамі. *Д. грашамі. Д. будаўнічымі матэрыяламі.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *каму-чаму.* З'явіцца сродкам для дасягнення мэты. *Лякарства дапамагло. Компас дапамог зарыентавацца ў лесе.* ◊ **Дапамагчы гору** (разм.) — выратаваць з цяжкага становішча. ‖ *незак.* **дапамага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАПАМО́ГА**, -і, *ДМ* -мо́зе, *ж.* **1.** Садзейнічанне, падтрымка каму-н. у чым-н. *Д. бацькам.* **2.** Матэрыяльная падтрымка. *Грашовая д. Выхадная д.* **3.** Садзейнічанне ў лячэнні, у палягчэнні пакут. *Медыцынская д.* ○ **Карэта хуткай дапамогі** — спецыяльная аўтамашына для аказання неадкладнай медыцынскай дапамогі. **Першая дапамога** — дапамога хвораму ці пацярпеламу да прыбыцця доктара. **Хуткая дапамога** — 1) сістэма медыцынскай дапамогі пры небяспечных для жыцця і здароўя чалавека выпадках, якая аказваецца дома або на месцы здарэння; 2) спецыяльна абсталяваная аўтамашына, якая аказвае такую дапамогу.

**ДАПАМО́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Кніга для навучання па якім-н. асобным прадмеце. *Д. па фізіцы. Д. па гісторыі Беларусі.*

**ДАПАМО́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прызначаны для дапамогі каму-, чаму-н.; падсобны. *Д. матэрыял.* **2.** Неасноўны, дадатковы. *Д. цэх. Дапаможная гаспадарка.* ○ **Дапаможны дзеяслоў** — асабовая форма дзеяслова, што ўжыв. для выражэння аналітычных дзеяслоўных форм або састаўнога выказніка, напр.: *быў настаўнікам, буду чытаць.*

**ДАПАСАВА́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Від падпарадкавальнай сінтаксічнай сувязі, пры якой залежнае слова ставіцца ў тых жа граматычных формах, у якіх стаіць галоўнае слова, напр.: *новы дом, цікавая кніга, беларускі народ.*

**ДАПАСАВА́НЫ**, -ая, -ае (спец.). Звязаны граматычнай сувяззю дапасавання. *Дапасаванае азначэнне.*

**ДАПАСАВА́ЦЬ**, -сую, -суеш, -суе; -суй; -сава́ны; *зак., што.* **1.** Падагнаць, прыладзіць (разм.). *Д. новае тэхнічнае прыстасаванне.* **2.** Паставіць залежнае слова ў тым самым родзе, ліку, склоне, у якім стаіць галоўнае слова. *Д. прыметнік да назоўніка.* ‖ *незак.* **дапасо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАПА́СЦІ**, -паду, -падзеш, -падзе; -падзём, -падзяце, -падуць; -падзі; *зак.* (разм.). **1.** *да чаго.* З прагнасцю дарвацца, накінуцца на што-н. жаданае. *Д. да вады.* **2.** Настойліва імкнучыся, дабрацца куды-н., да якога-н. месца. *Яго нішто не ўтрымае, ён усюды дападзе.* ‖ *незак.* **дапада́ць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАПАТО́ПНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Вельмі даўні, які нібыта існаваў да міфічнага біблейскага патопу. *Дапатопная жывёліна.* **2.** Старамодны, устарэлы (жарт., іран.). *Д. фасон. У цябе, браце, нейкая дапатопная мэбля.*

**ДАПАЎНА́**, *прысл.* (разм.). Да самых берагоў. *Наліць бочку д.*

**ДАПАЎНЕ́ННЕ**, -я, *мн. -і, -яў, н.* **1.** *гл.* дапоўніць. **2.** Тое, чым што-н. дапоўнена; дадатак. *Д. да пастановы.* **3.** У граматыцы: даданы член сказа са знач. аб'екта, звычайна выражаны ўскосным склонам назоўніка ці іншай часцінай мовы ў функцыі назоўніка. *Прамое д. Ускоснае д.* ‖ *прым.* **дапаўня́льны**, -ая, -ае (у 3 знач.). *Д. даданы сказ.*

**ДАПІЛЬНАВА́ЦЬ**, -ную, -нуеш, -нуе; -нуй; -наваны; *зак., каго-што.* (разм.). **1.** Высачыць, заспець за якім-н. заняткам. *Д. злодзея.* **2.** Дагледзець, захаваць у парадку. *Д. сад.* ‖ *незак.* **дапільно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАПІНА́ЦЬ** *гл.* дапяць.

**ДАПІСА́ЦЬ**, -пішу, -пішаш, -піша; -пішы; -пісаны; *зак., што.* **1.** Скончыць пісаць што-н.; напісаць да якога-н. месца. *Д. пісьмо. Д. пейзаж.* **2.** Дадаць да напісанага; прыпісаць. *Д. некалькі радкоў. У ведамасці ўсё можна д.* ‖ *незак.* **дапі́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **дапі́ска**, -і, *ДМ* дапісцы, *ж. і* **дапі́сванне**, -я, *н.*

**ДАПІ́СКА**, -і, *ДМ* дапісцы, *ж.* **1.** *гл.* дапісаць. **2.** *мн.* -і, -сак. Дадатак да напісанага; прыпіска. *Дапіскі на дакументах.*

**ДАПІ́ЦЦА**, -п'юся, -п'ешся, -п'ецца; -п'ёмся, -п'яцеся, -п'юцца; *зак., да чаго* (разм.). Празмерным ужываннем спіртнога нашкодзіць сабе, свайму здароўю. *Д. да белай гарачкі.* ‖ *незак.* **дапіва́цца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАПІ́ЦЬ**, -п'ю, -п'еш, -п'е; -п'ём, -п'яце, -п'юць; -пі; -піты; *зак., што.* Выпіць усё, да канца. *Д. малако.* ‖ *незак.* **дапіва́ць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАПЛА́ТА**, -ы, *ДМ* -лаце, *ж.* **1.** *гл.* даплаціць. **2.** Дадатковая плата. *Атрымаць даплату за звышурочную работу. Д. за багаж.* ‖ *прым.* **даплатны**, -ая, -ое. *Даплатная каса.* ○ **Даплатное пісьмо** — пісьмо, за перасылку якога плаціць атрымальнік.

**ДАПЛАЦІ́ЦЬ**, -ачу, -аціш, -аціць; -ачаны; *зак., што* і *без дап.* Дадаць пэўную частку грошай да раней унесенай сумы; выплаціць усё да канца. *Д. сто рублёў.* ‖ *незак.* **дапла́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **дапла́та**, -ы, *ДМ* -лаце, *ж.*

**ДАПЛЕ́СЦІСЯ**, -лятуся, -ляцешся, -ляцецца; -ляцёмся, -лецяцеся, -лятуцца; -лёўся, -лялася, -лося; -ляціся; *зак.* (разм.). Марудна, з цяжкасцю дайсці да якога-н. месца. *Ледзь даплёўся да ложка.* ‖ *незак.* **даплята́цца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАПЛЫ́СЦІ** *і* **ДАПЛЫ́ЦЬ**, -лыву, -лывеш, -лыве; -лывём, -лывяце, -лывуць; -лыў, -лыла, -ло; -лыві; *зак.* Плывучы, дасягнуць якога-н. месца. *Д. да берага.* ‖ *незак.* **даплыва́ць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАПО́ЎНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што.* Зрабіць больш поўным, дабавіць звыш таго, што маецца; папоўніць. *Д. кош грыбамі. Д. дакладчыка.* ‖ *незак.* **дапаўня́ць**, -яю, -яеш, -яе. ‖ *наз.* **дапаўне́нне**, -я, *н.*

**ДАПРА́ДКІ**, -дак *і* -дкаў. Заканчэнне прадзіва. *Сёння ў іх д.*

**ДАПРАЦАВА́ЦЬ**, -цую, -цуеш, -цуе; -цуй; -цаваны; *зак.* **1.** *што.* Завяршыць працу над чым-н.; дадатковай апрацоўкай давесці да патрэбнай якасці. *Д. дысертацыю. Д. праект.* **2.** Прапрацаваць да якога-н. часу, тэрміну. *Д. да лістапада.* ‖ *незак.* **дапрацо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **дапрацо́ўка**, -і, *ДМ* -цоўцы, *ж.*

**ДАПРЫЗЫ́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Малады чалавек, які праходзіць дапрызыўную ваенную падрыхтоўку.

**ДАПРЫЗЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які папярэднічае прызыву на ваенную службу. *Дапрызыўная падрыхтоўка.*

**ДАПУСКНЫ́** *гл.* допуск.

**ДАПУСЦІ́ЦЬ**, -пушчу, -пусціш, -пусціць; -пушчаны; *зак.* **1.** *каго (што) да каго-чаго.* Дазволіць каму-н. удзельнічаць у чым-н. або мець доступ куды-н. *Д. да экзаменаў. Д. да работы.* **2.** *што.* Зрабіць што-н. міжвольна. *Д. памылку.* **3.** Дазволіць што-н. зрабіць, чаму-н. адбыцца. **4.** Палічыць за магчымае, верагоднае. *Не магу нават думкі такой д.* **5.** Прыладзіць, прыгнаць што-н. да чаго-н. *Д. дзверы да вушака. Д. аконную раму.* ‖ *незак.* **дапуска́ць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **дапушчэ́нне**, -я, *н.*

**ДАПУШЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які можна дапусціць; магчымы, дазволены. *Дапушчальнае адхіленне. Дапушчальная надбаўка.* ‖ *наз.* **дапушча́льнасць**, -і, *ж.*

**ДАПЫТА́ЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Распытваючы, даведацца аб кім-, чым-н. *Д. ў чалавека, хто ён. Д. праўды.* ‖ *незак.* **дапы́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАПЫТА́ЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Зрабіць допыт. *Д. абвінавачанага.* ‖ *незак.* **дапы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАПЫ́ТВАНЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* (спец.). Той, у каго робяць допыт. *Д. аказаўся невінаваты.*

**ДАПЫ́ТЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які імкнецца ўсё зразумець, пазнаць. *Гэта быў д. чалавек.* **2.** Праніклівы, здольны многае заўважыць, прадбачыць. *Д. розум. Абвесці дапытлівым позіркам пакой.* ‖ *наз.* **дапы́тлівасць**, -і, *ж.*

**ДАП'ЯНА́**, *прысл.* Да поўнага ап'янення. *Напіцца д.*

**ДАПЯ́ЦЬ**, -пну, -пнеш, -пне; -пнём, -пняце, -пнуць; -пні; *зак.* (разм.). **1.** *да каго-чаго.* Дайсці, дабрацца куды-н. *Ратуючыся, ён аж да Масквы дапяў.* **2.** *чаго.* Дамагчыся, дасягнуць чаго-н. *Яна свайго дапне.* **3.** Зразумець што-н. *Слухаў, слухаў, але не адразу дапяў.* ‖ *незак.* **дапіна́ць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАПЯЧЫ́**, -пяку, -пячэш, -пячэ; -пячом, -печаце, -пякуць; дапёк, -пякла, -ло; -пячы; -печаны; *зак.* **1.** Скончыць пячы, давесці да поўнай гатоўнасці. *Д. хлеб.* **2.** *чаго.* Спячы дадаткова. *Д. бліноў.* **3.** *перан., каму* і *без дап.* Вывесці з раўнавагі; даняць. *Сваімі дакорамі і папрокамі ён усім дапёк.* ‖ *незак.* **дапяка́ць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАР**, -у, *мн.* дары, -оў, *м.* **1.** Тое, што даецца бясплатна; падарунак. *Прынесці што-н. у д.* **2.** Плён працы, якой-н. дзейнасці; тое, што дае прырода. *Дары прыроды.* **3.** Талент, здольнасць. *Д. пісьменніка.* ○ **Святыя дары** — хлеб і віно для прычашчэння веруючых. ◊ **Дар слова** — здольнасць прыгожа гаварыць.

**ДАРАБІ́ЦЬ**, -раблю, -робіш, -робіць; -роблены; *зак., што.* **1.** Скончыць, завяршыць работу, давесці да патрэбнага ўзроўню. *Д. справы. Д. праект забудовы.* **2.** Зрабіць дадаткова, прырабіць што-н. да чаго-н. *Д. ключ. Д. ножку да стала.* ‖ *незак.* **дарабля́ць**, -яю, -яеш, -яе. ‖ *наз.* **даро́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *ж.*

**ДАРАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна даравацъ. *Д. ўчынак.*

**ДАРАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* даравацъ. **2.** *мн.* -і, -яў. Здольнасць, талент, а таксама асоба, якая валодае такімі талентамі. *Паэтычнае д. Юныя дараванні.*

**ДАРАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ру́ецца; *зак.* і *незак.* Не залічыцца (не залічвацца) у віну. *Гэта вам ніколі не даруецца.*

**ДАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак.* **1.** *што* і *за што.* Зняць (знімаць) віну за што-н. *Усё можна д., толькі не хлусню. Гэты промах мы можам яму д. Вы мне даруйце за маю нетактоўнасць.* **2.** *зак.* Падарыць, узнагародзіць. *Д. зняволенаму волю. Д. грамату.* **3.** *зак., што, каму.* Вызваліць ад якога-н. абавязацельства. *Д. доўг.* **4.** *у знач. пабочн. сл.* **дару́й(це)**. Ужыв. пры звароце да каго-н. з просьбай прабачыць за што-н. *Даруйце, я затрымаўся.* ◊ **Даравацъ жыццё** — памілаваць асуджанага да пакарання смерцю. ‖ *зак.* **падарава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е, -ру́й; -рава́ны (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **дарава́нне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.).

**ДАРАГАВІ́ЗНА**, -ы, *ж.* Тое, што і *дарагоўля. Д. на прамтавары.*

**ДАРАГІ́**, -а́я, -о́е; даражэ́йшы. **1.** Які каштуе многа грошай, высока цэніцца; *проціл.* танны. *Дарагая мэбля. Дорага* (прысл.) *каштуе.* **2.** *перан.* Які звязаны з вялікімі намаганнямі, ахвярамі. *Дарагая перамога.* **3.** *перан.* Такі, якім даражаць, якога шануюць. *Нам дарагая памяць герояў. Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка* (прыказка). **4.** Ласкавы, мілы, любімы. *Д. друг. Пішы часцей, дарагая сяброўка.*

**ДАРАГО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Становішча, калі цэны на тавары надта высокія.

**ДАРА́ДЧЫ**, -ая, -ае. Звязаны з правам выказаць меркаванне, але не выносіць рашэнне. *Дэлегаты з правам дарадчага голасу. Д. пакой.*

**ДАРА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто дае парады. *Цікавы і дасведчаны д.* ‖ *ж.* **дара́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ДАРАЖЫ́ЦЬ**, -жу́, -жы́ш, -жы́ць; -жы́м, -жыце́, -жа́ць; *незак.* Высока цаніць, берагчы; ашчадна адносіцца да чаго-н. *На рабоце ім даражаць. Д. кожнай мінутай рабочага часу. Д. думкай спецыяліста.*

**ДАРАЖЭ́НЬКІ**, -ага, *мн.* -ія, -іх, *м.* Форма ветлівага звароту да каго-н. *Пачытай, д., яшчэ.*

**ДАРАЖЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -э́е; *незак.* Павышацца ў цане. *Мэбля даражэе.* ‖ *зак.* **падаражэ́ць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -э́е.

**ДАРАСЦІ́**, -сту́, -сце́ш, -сце́; -сцём, -сцяце́, -сту́ць; -ро́с, -расла́, -сло́; *зак.* **1.** Вырасці да якой-н. мяжы, дасягнуць якой-н. вышыні. *Дрэва дарасло да страхі.* **2.** *перан.* (звычайна з адмоўем). Развіцца ў дастатковай ступені, дасягнуць якога-н. узроўню развіцця. *Да сапраўднага вучонага ён не дарос.* ‖ *незак.* **дараста́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАРАШАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Шэрай масці з прымессю іншага колеру (пра коней). *Д. конік.*

**ДАРВА́ЦЦА**, -ву́ся, -ве́шся, -ве́цца; -вёмся, -вяце́ся, -ву́цца; -ві́ся; *зак., да чаго* (разм.). Атрымаць доступ, дабрацца да чаго-н. вельмі жаданага, патрэбнага. *Д. да яды.* ‖ *незак.* **дарыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДАРВІНІ́ЗМ**, -у, *м.* Заснаваная на вучэнні Ч. Дарвіна матэрыялістычная тэорыя эвалюцыі арганічнага свету.

**ДАРВІНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік дарвінізму. ‖ *ж.* **дарвіні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дарвіні́сцкі**, -ая, -ае.

**ДА́РМА** *і* **ДАРМА́**, *прысл.* **1.** Бясплатна, за нішто. *Аддаць д. мех бульбы.* **2.** Бескарысна, марна. *Ні адной гадзіны не страціў д. Д. вы хвалюецеся, усё будзе добра.* **3.** *у знач. часц.* Хай, так і быць. *Не хопіць бульбы? — Д.! Дадасі яшчэ гароху.*

**ДАРМАВЫ́**, -а́я, -о́е *і* **ДАРМО́ВЫ**, -ая, -ае. Бясплатны, атрыманы за нішто, без грошай. *Д. абед. Дармавому каню ў зубы не глядзяць* (прымаўка).

**ДАРМАЕ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто не працуе, а жыве на чужыя сродкі; лайдак, гультай. ‖ *ж.* **дармае́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак. ‖ *прым.* **дармае́дскі**, -ая, -ае.

**ДАРМАЕ́ДНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Не працуючы, жыць на чужыя сродкі. ‖ *наз.* **дармае́дства**, -а, *н.*

**ДАРМАЎШЧЫ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Тое, што даецца дарма, бясплатна. *На дармаўшчыну кожны падкі.*

**ДАРМО́**, *прысл.* Тое, што і *дарма* (у 2 і 3 знач.).

**ДАРО́БКА** *гл.* дарабіць.

**ДАРО́ГА**, -і, *ДМ* -ро́зе, *мн.* -і, -ро́г, *ж.* **1.** Паласа зямлі, прызначаная для язды і хадзьбы, якая злучае асобныя пункты мясцовасці, а таксама ўсякі камунікацыйны шлях. *Марская д. Прасёлачная д. Грунтавая д. Асфальтавая д.* **2.** Адлегласць, якую трэба праехаць або прайсці. *Прайсці палавіну дарогі.* **3.** Месца для праходу, праезду, а таксама доступ куды-н. *Даць дарогу каму-н.* (таксама перан.: даць магчымасць расці, развівацца каму-н.). *Д. да сэрца* (перан.). **4.** Знаходжанне ў дарозе, падарожжа. *Усю дарогу праспаў.* **5.** *перан.* Накіраванасць, напрамак дзейнасці. *Ісці сваёй дарогай.* **6.** *у знач. прысл.* **даро́гай**. У час язды. *Пагутарым дарогай.* ◊ **Апошняя дарога** — пра смерць, пахаванне каго-н. **Бітая дарога** — уезджаная дарога. **Збіцца з дарогі** — пачаць весці заганны спосаб жыцця. **Ісці прамой дарогай** — жыць сумленным жыццём. **Шчаслівай дарогі!** — добрае пажаданне ў дарогу. ‖ *памянш.-ласк.* **даро́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* (да 1 знач.), **даро́жачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.) *і* **даро́жанька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **даро́жны**, -ая, -ае (да 1 і 4 знач.). *Дарожнае будаўніцтва. Дарожнае знаёмства. Дарожныя нататкі.*

**ДАРО́ДАВЫ**, -ая, -ае. Перыяд, які працягваецца да пачатку родаў.

**ДАРО́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* **1.** *гл.* дарога. *Лясная д.* **2.** Прызначаная для хадзьбы вузкая дарога ў садах, парках і пад. *Пасыпаць дарожкі пяском.* **3.** У спартыўных збудаваннях, на аэрадромах: спецыяльна абсталяваная дыстанцыя (для бегу, плавання, узлёту). *Бегавая д. Водная д. Узлётная д.* **4.** Вузкі доўгі дыван, а таксама вузкі доўгі абрус. *Пасласць дывановую дарожку. Карункавая д.* **5.** Рыбалоўная прылада ў выглядзе доўгага шнура з кручком і прынадай на канцы. *Злавіў шчупака на дарожку.*

**ДАРО́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па будаўніцтве, рамонце і эксплуатацыі дарог. ‖ *ж.* **даро́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДАРО́СЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выйшаў з дзіцячага ўзросту, набыў сталасць. *Д. юнак.* **2.** *у знач. наз.* **даро́слы**, -ага, *м.*, **даро́слая**, -ай, *ж.*, *мн.* -ыя, -ых. Чалавек, які дасягнуў поўнай сталасці па гадах, паводзінах, дзеяннях. *Дарослыя вялі гутарку на прызбе.* ‖ *наз.* **даро́сласць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**ДАРО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Падораны кім-н., атрыманы ў падарунак. *Д. сервіз.* **2.** Які пацвярджае падарунак. *Д. надпіс.* **3.** *у знач. наз.* **даро́ўная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Дакумент, які замацоўвае падараваную маёмасць за тым, хто атрымаў яе (спец.).

**ДАРУ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* (разм.). Тое, што і *дар* (у 1 знач.). ◊ **Дарункі данайцаў** — падарункі, якія нясуць небяспеку і гібель.

**ДАРУЧЫ́ЦЬ**, -ручу́, -ру́чыш, -ру́чыць; -ру́чаны; *зак., каму каго-што.* **1.** Ускласці на каго-н. абавязак выканаць што-н. *Д. яму праверыць работу.* **2.** Даверыць каго-, што-н. чыім-н. клопатам, апецы. *Нагляд за дзецьмі даручылі вопытнай няньцы.* ‖ *незак.* **даруча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАРУЧЭ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Службовая асоба, што знаходзіцца пры кіраўніку і выконвае службовыя даручэнні.

**ДАРУЧЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Справа, даручаная каму-н. для выканання. *Грамадскае д.* **2.** Дакумент, які дае права каму-н. дзейнічаць ад імя асобы, што выдала яго; даверанасць. *Атрымаць зарплату па даручэнні.*

**ДАРЫ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто дорыць што-н., робіць дарэнне. *Музейныя набыткі ад дарыльшчыкаў.* ‖ *ж.* **дары́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ДАРЫСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Скончыць рысаваць што-н. *Д. партрэт.* **2.** *перан.* Закончыць стварэнне вобраза, характару. *Д. вобраз галоўнага героя.* ‖ *незак.* **дарысо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **дарысо́ўка**, -і, *ДМ* -со́ўцы, *ж.* *і* **дарысо́ўванне**, -я, *н.*

**ДАРЫ́ЦЬ**, дару́, до́рыш, до́рыць; до́раны; *незак. каму-чаму каго-што.* Даваць у якасці падарунка, аддаваць бясплатна. *Д. кветкі. Д. сваёй увагай* (перан.). ‖ *зак.* **падары́ць**, -дару́, -до́рыш, -до́рыць; -до́раны.

**ДАРЭВАЛЮЦЫЙНЫ**, -ая, -ае. Той, які быў да рэвалюцыі. *Д. перыяд.*

**ДАРЭ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). У дарэвалюцыйнай беларускай вёсцы: хатні настаўнік.

**ДАРЭ́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не прыносіць жаданых вынікаў; марны. *Дарэмныя спробы. Дарэмныя надзеі.* **2.** Беспадстаўны, беспрычынны. *Дарэмная трывога.* **3.** Атрыманы дарма, бясплатны. *Д. хлеб.* ‖ *наз.* **дарэ́мнасць**, -і, *ж.*

**ДАРЭ́МШЧЫНА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што дастаецца дарма, бясплатна. *Сквапны на дарэмшчыну.* **2.** Беспадстаўнае, фальшывае абвінавачанне; нагавор. *Такую ўзвялі на яго дарэмшчыну.*

**ДАРЭ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Зроблены дарэчы, адпаведны абставінам. *Дарэчнае пытанне.*

**ДАРЭ́ЧЫ**, *прысл.* **1.** У час, у падыходзячы момант. *Грошы прыйшлі д.* **2.** *у знач. пабочн. сл.* Для абазначэння таго, што дадзеная фраза гаворыцца ў дадатак да сказанага, у сувязі са сказаным. *Д., яго здольнасцей мы яшчэ не ведаем.*

**ДАРЭ́ШТЫ**, *прысл.* Зусім, поўнасцю, падчыстую. *Аддаў усё д.*

**ДАСАВЕ́ЦКІ**, -ая, -ае. Які адносіцца да часу, што папярэднічаў устанаўленню савецкай улады. *Д. перыяд развіцця літаратуры.*

**ДАСВЕ́ДЧАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Шырока адукаваны, эрудзіраваны. *Д. інжынер.* **2.** Вопытны ў чым-н., навучаны чаму-н. *Д. ў палітыцы.* ‖ *наз.* **дасве́дчанасць**, -і, *ж.*

**ДАСЕ́КЧЫ** *гл.* дасячы.

**ДАСЕ́ЎКІ**, -севак *і* -се́ўкаў. Заканчэнне сяўбы. *Спраўляць д.*

**ДАСКАКА́ЦЬ**, -скачу́, -ска́чаш, -ска́ча; -скачы́; *зак., да чаго.* Скачучы, дасягнуць якога-н. месца. *На адной назе даскакаў да дзвярэй.* ‖ *незак.* **даска́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАСКАНА́ЛЫ**, -ая, -ае. Непараўнальны па грунтоўнасці, майстэрстве выканання; падрабязны. *Дасканалае даследаванне. Д. аналіз фактаў. Дасканала* (прысл.) *разглядзець.* ‖ *наз.* **дасканаласць**, -і, *ж.*

**ДАСКО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак.* **1.** Скочыўшы, дасягнуць якога-н. месца. **2.** Спяшаючыся, дамчацца да якога-н. месца (разм.). *Ён усюды даскочыць.*

**ДАСЛА́ЦЬ**[1], дашлю́, дашле́ш, дашле́; дашлём, дашляце́, дашлю́ць; дашлі́; дасла́ны; *зак., што.* **1.** Паслаць дадаткова, выслаць недасланае. *Д. грошы за пуцёўку.* **2.** Прасунуць да пэўнага месца (патрон, снарад і пад.). *Д. патрон у патроннік.* **3.** Адправіць, паслаць што-н. для ўручэння (карэспандэнцыю і пад.), а таксама накіраваць каго-н. куды-н. з пэўнай мэтай. *Д. сватоў. Д. пакет з дакументамі.* ‖ *незак.* **дасыла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **дасы́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.*

**ДАСЛА́ЦЬ**[2], -сцялю́, -сце́леш, -сце́ле; -сла́ў, -сла́ла; -сцялі́; -сла́ны; *зак., што.* Пакрываючы паверхню, скончыць рассцілаць што-н. *Д. лён.* ‖ *незак.* **дасціла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАСЛЕ́ДАВАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* даследаваць. **2.** *мн.* -і, -яў. Навуковая праца. *Д. па гісторыі беларускага народа.*

**ДАСЛЕ́ДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны; *зак.* і *незак., каго-што.* **1.** Зрабіць навуковы агляд з мэтай пазнання, высвятлення чаго-н. *Д. законы прыроды. Д. склад рэчыва.* **2.** Абследаваць, агледзець (аглядаць) для высвятлення, устанаўлення чаго-н. *Д. хворага. Д. мясцовасць.* ‖ *наз.* **дасле́даванне**, -я, *н.*

**ДАСЛЕ́ДЧЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да навуковага даследавання. *Д. інстытут. Даследчая праца.*

**ДАСЛЕ́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца навуковымі даследаваннямі. ‖ *ж.* **дасле́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **дасле́дчыцкі**, -ая, -ае.

**ДАСЛО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Літаральна дакладны, перададзены слова ў слова. *Д. пераклад. Даслоўная перадача размовы.* ‖ *наз.* **дасло́ўнасць**, -і, *ж.*

**ДАСЛУЖЫ́ЦЦА**, -ужу́ся, -у́жышся, -у́жыцца; *зак.* **1.** Служачы, дасягнуць чаго-н. *Д. да чыну капітана.* **2.** Атрымаць непрыемныя вынікі сваімі адмоўнымі паводзінамі (разм., іран.). *Ну што, даслужыўся?* ‖ *незак.* **дослу́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАСЛУ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Даведацца пра што-н. ад людзей. *Даслухаўся я, што хутка робаты будуць выконваць цяжкую працу.*

**ДАСЛУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Выслухаць да канца; праслухаць да якога-н. месца. *Д. прамову. Так і не даслухаў лектара.* ‖ *незак.* **даслу́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАСПАДО́БЫ**, *прысл.* Падабаецца, падыходзіць, па гусце. *Яму ўсё тут д.*

**ДАСПА́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -па́ў, -па́ла; -пі́; *зак.* (разм.). **1.** Праспаць да якога-н. часу. *Д. да абеду.* **2.** Праспаць дадаткова пэўны час, каб выспацца. *Колькі начэй не даспаў.* ‖ *незак.* **дасыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДАСПЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які добра выспеў, стаў спелым. *Д. авёс чакаў сярпа.*

**ДАСПЕ́ХІ**, -аў, *адз.* даспе́х, -а, *м.* **1.** Баявое ўзбраенне, амуніцыя воіна старых часоў. *Рыцарскія д.* **2.** *перан.* Наогул які-н. рыштунак (жарт.). *Паляўнічыя д.*

**ДАСПЕ́ЦЬ**, -пее; *зак.* Стаць зусім спелым. *Антонаўкі даспелі.* ‖ *незак.* **даспява́ць**, -а́е.

**ДАСПЯЛІ́ЦЬ**, -пялю́, -пе́ліш, -пе́ліць; -пе́лены; *зак.* Давесці да спелага стану. *Д. памідоры.* ‖ *незак.* **даспе́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **даспе́льванне**, -я, *н.*

**ДАСТА́ВІЦЬ**, -таўлю, -та́віш, -та́віць; -та́ўлены; *зак., каго-што.* Прынесці або прывезці да месца прызначэння. *Д. пасылку ў тэрмін. Д. тавар у магазін. Д. усё неабходнае.* ‖ *незак.* **дастаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **доста́ўка**, -і, *ДМ* -а́ўцы, *ж.*

**ДАСТАСАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які можна дастасаваць, прымяніць. ‖ *наз.* **дастасава́льнасць**, -і, *ж.*

**ДАСТАСАВА́ЦЦА**, -су́юся, -су́ешся, -су́ецца; -су́йся; *зак., да каго-чаго.* Прымяніцца, прыйсці ў адпаведнасць з чым-н. *Д. да навакольнага асяроддзя.* ‖ *незак.* **дастасо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **дастасава́нне**, -я, *н.*

**ДАСТАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., што да чаго.* Прымяніць, прывесці ў адпаведнасць з чым-н. *Д. тэорыю да практыкі.* ‖ *незак.* **дастасо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **дастасава́нне**, -я, *н.*

**ДАСТА́ТАК**, -тку, *м.* **1.** Заможнасць, поўная матэрыяльная забяспечанасць. *Жыць у дастатку.* **2.** звычайна *мн.* (**даста́ткі**, -аў). Матэрыяльныя сродкі, набыткі. *Дастаткаў вам у хату!*

**ДАСТАТКО́ВА**, *прысл.* **1.** У патрэбнай меры, досыць. *Д. вялікі.* **2.** *у знач. вык.* Даволі, хопіць. *Сродкаў д. Д. сказаць адно слова, каб ён паслухаў.*

**ДАСТАТКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Якога хапае для чаго-н., які задавальняе пэўныя патрэбы. *Дастатковая колькасць сыравіны. Дастатковая падрыхтоўка.* **2.** У патрэбнай ступені абгрунтаваны. *Дастатковыя падставы.* ‖ *наз.* **дастатко́васць**, -і, *ж.*

**ДАСТА́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік, які дастаўляе што-н. *Д. тэлеграм.* ‖ *ж.* **даста́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ДАСТА́ЦЦА**, -а́нуся, -а́нешся, -а́нецца; -а́нься; *зак., каму.* **1.** Зрабіцца чыёй-н. уласнасцю, перайсці ў чыё-н. распараджэнне. *Хата дасталася яму пасля бацькі.* **2.** *безас.* Перанесці цяжкія выпрабаванні; трапіць у непрыемнасць. *Ну і дасталося ж яму сёння!* ‖ *незак.* **дастава́цца**, -таю́ся, -тае́шся, -тае́цца; -таёмся, -таяце́ся; -таю́цца.

**ДАСТА́ЦЬ**, -а́ну, -а́неш, -а́не; -а́нь; *зак.* **1.** *што.* Узяць што-н. такое, што знаходзіцца на адлегласці. *Д. талерку з паліцы.* **2.** *да каго-чаго, што* або *чаго.* Дацягнуцца, дакрануцца да чаго-н. аддаленага. *Д. рукой да бэлькі. Д. дно ў рацэ.* **3.** Выняць, выцягнуць, набыць што-н., здабыць. *Д. кнігу з партфеля. Д. асколак з раны.* **4.** *што.* Раздабыць што-н. *Д. білет у тэатр.* **5.** *што* і *чаго.* Нажыць што-н. непрыемнае (часцей пра здароўе; разм.). *Д. запаленне лёгкіх.* ◊ **Дастаць з-пад зямлі** (разм.) — любым спосабам адшукаць. **Зімой лёду не дастанеш** *у каго* (разм.) — пра вельмі скупога чалавека. **Крукам носа не дастанеш** *каму* (разм.) — не падступішся да каго-н. ‖ *незак.* **дастава́ць**, -таю́, -тае́ш, -тае́; -таём, -таяце́, -таю́ць.

**ДАСТА́ЧА**, -ы, *ж.* Поўная матэрыяльная забяспечанасць. *Жыць у дастачы.*

**ДАСТО́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які заслугоўвае, варты чаго-н. *Д. пахвалы. Д. ганьбавання.* **2.** Справядлівы, заслужаны. *Дастойная ўзнагарода. Дастойная сустрэча.* **3.** Паважаны, шаноўны. *Д. чалавек.* ‖ *наз.* **дасто́йнасць**, -і, *ж.*

**ДАСТУ́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Стукаючы, дабіцца адказу. *Ледзь дастукаўся ў хату.* **2.** *чаго.* Старанна дама-

гаючыся, дабіцца свайго (разм.). *Д. кватэры.* **3.** Наклікаць на сябе непрыемнасці адмоўнымі паводзінамі (разм.). *Дастукаўся, што аштрафавалі.*

**ДАСТУПІ́ЦЦА**, -ступлюся, -сту́пішся, -сту́піцца; *зак.* **1.** *да каго-чаго.* Падысці, прыблізіцца. *Да бадлівай каровы не даступішся.* **2.** (звычайна з адмоўем), *перан., да каго.* Звярнуцца да каго-н. з просьбай, заявай. *Начальнік ганарысты, да яго не даступішся.* ‖ *незак.* **даступа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДАСТУ́ПНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, да якога можна прайсці, праехаць. *Лагер размясціўся ў даступным месцы.* **2.** Адкрыты для зроку. *Д. дляназірання.* **3.** Які падыходзіць для ўсіх або многіх. *Даступныя цэны.* **4.** Лёгкі для разумення. *Даступная форма выкладання думак.* **5.** Які выклікае прыхільнасць да сябе. *Гэта быў д. просты чалавек.* ‖ *наз.* **даступнасць**, -і, *ж.*

**ДАСУ́ХА** *і* **ДО́СУХА**, *прысл.* Да поўнай сухасці. *Выцерці пасуду д.*

**ДАСЦІ́ПНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вызначаецца вострым розумам, незвычайным уменнем ярка, трапна, смешна або з'едліва выказаць думку. *Д. чалавек. Д. фельетон. Д. жарт.* **2.** Цікаўны, дапытлівы. *Дасціпнае дзіця.* ‖ *наз.* **дасці́пнасць**, -і, *ж.*

**ДАСЫ́ПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; -плем, -плеце, -плюць; -паў, -пала; дасы́п; -паны; *зак.* **1.** *што.* Скончыць сыпаць, насыпаць да пэўнага ўзроўню, дабавіць да поўнага. *Д. мяшок даверху.* **2.** *чаго.* Насыпаць дастаткова чаго-н. *Д. солі ў страву.* ‖ *незак.* **дасыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **дасы́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж. і* **дасыпа́нне**, -я, *н.*

**ДАСЬЕ́**, *нескл., н.* Збор дакументаў па якім-н. пытанні, справе, асобе, а таксама папка з такімі дакументамі. *Завесці д. на каго-н.*

**ДАСЮ́ЛЬ**, *прысл.* (разм.). **1.** Да гэтага месца. *Прачытай д.* **2.** Да гэтага часу. *Ад яго д. няма адказу.*

**ДАСЯГА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, якога можна дасягнуць. *Дасягальная мэта.* ‖ *наз.* **дасяга́льнасць**, -і, *ж.*

**ДАСЯГНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ну́ў, -ну́ла, -лі; -ні́; -ся́гнуты; *зак., чаго.* **1.** Дайсці, даехаць і пад. да пэўнага месца. *Лодка дасягнула сярэдзіны ракі.* **2.** Распаўсюджваючыся, дайсці да якога-н. месца, да чаго-н. (пра гукі, пахі і пад.). *Пах з кухні дасягнуў пакоя. Чуткі дасягнулі вёскі.* **3.** Дайсці да якога-н. узроўню ў сваім развіцці, праяўленні, у якіх-н. зменах. *Мароз дасягнуў 30°.* **4.** Дажыць да якога-н. узросту. *Д. паўналецця. Д. глыбокай старасці.* **5.** Дамагчыся чаго-н., якой-н. мэты. *Д. згоды. Д. поспехаў у навуцы.* ‖ *незак.* **дасяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **дасягне́нне**, -я, *н.*

**ДАСЯ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *дасягальны.* ‖ *наз.* **дася́жнасць**, -і, *ж.*

**ДАСЯЧЫ́** *і* **ДАСЕ́КЧЫ**, -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы́; -се́чаны; *зак.* **1.** Скончыць сячы, рассякаць што-н. *Д. дровы.* **2.** Секучы, дайсці да якой-н. мяжы. *Д. да сярэдзіны.* ‖ *незак.* **дасяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **дасяка́нне**, -я, *н.*

**ДА́ТА**, -ы, *ДМ* да́це, *мн.* -ы, дат, *ж.* **1.** Дакладны каляндарны час якой-н. падзеі. *Гістарычныя даты. Круглая д.* (аб юбілеі, дні нараджэння і пад., якія падлічваюцца дзесяцігоддзямі). **2.** Памета, якая паказвае час (год, месяц, дзень) напісання дакумента, пісьма, твора і пад. *Пісьмо без даты.*

**ДАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́ем, -ту́еце, -ту́юць; -тава́ў, -ва́ла, -лі; -ту́й; -тава́ны; *зак. і незак.* **1.** Абазначыць (абазначаць) дату на чым-н. *Д. заяву ўчарашнім чыслом.* **2.** Устанавіць (устанаўліваць) дату якога-н. факта, падзеі. *Д. з'яўленне пісьмовага помніка.* ‖ *наз.* **датава́нне**, -я, *н.*

**ДАТА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Дзяржаўная грашовая дапамога прадпрыемствам, установам і арганізацыям для пакрыцця перавыдаткаў і іншых патрэб. *Атрымаць датацыю.* ‖ *прым.* **датацы́йны**, -ая, -ае.

**ДАТКНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак., да каго-чаго.* Дакрануцца да чаго-н. *Д. смычком да струн.* ‖ *незак.* **датыка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДАТЛА́**, *прысл.* Поўнасцю, зусім, канчаткова. *Хата згарэла д. Знішчыць д.*

**ДАТУ́ЛЬ**, *прысл.* (разм.). **1.** Да таго месца. *Дайшоў д., дзе дарога зварочвала ў лес.* **2.** Да таго часу. *Сядзеў у хаце д., пакуль не скончыўся дождж.*

**ДАТЧА́НЕ**, -ча́н, *адз.* -ча́нін, -а, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Даніі. ‖ *ж.* **датча́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **да́цкі**, -ая, -ае.

**ДА́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прыстасаванне, якое прымае інфармацыю, пераўтварае яе ў зручны для выкарыстання сігнал і перадае кантрольна-вымяральнаму ці каманднаму прыбору. *Цеплавыя датчыкі.*

**ДАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прыналежны да чаго-н., які мае пэўнае дачыненне да чаго-н. *Д. да музыкі чалавек. Асобы, датычныя да злачынства.* **2.** *у знач. наз.* **даты́чная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* У матэматыцы: прамая лінія, якая праходзіць праз пункт крывой і супадае з ёй у гэтым пункце. *Правесці датычную да акружнасці.* ‖ *наз.* **даты́чнасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**ДАТЫ́ЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -чыцца; *незак., каго-чаго.* Мець дачыненне да каго-, чаго-н. *Справа датычылася прысутных. Гэта вас не датычыцца.*

**ДАТЭРМІНО́ВЫ**, -ая, -ае. Які выконваецца ці заканчваецца раней вызначанага тэрміну. *Датэрміновае заканчэнне будоўлі. Датэрмінова* (прысл.) *здаць экзамены.*

**ДАЎБЕ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Круглае палена з патончаным канцом-дзяржаннем для расколвання, убівання чаго-н. у што-н.; невялікая доўбня. *Увагнаў калок даўбешкай. Даўбешкамі забівалі палі.* **2.** *перан.* Пра тупога, някемлівага чалавека (разм., лаянк.). *Д. часам пост займае немалы.*

**ДАЎБНЯ́** *гл.* доўбня.

**ДАЎГА...** (*гл.* **доўга...**). Першая састаўная частка складаных слоў; пішацца, калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *даўгавечны, даўганосы.*

**ДАЎГАВА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Некалькі даўжэйшы за нармальны. *Плашч яму д.* **2.** Не круглы на выгляд, прадаўгаваты. *Твар у хлопца д.*

**ДАЎГАВЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны жыць доўгі час. *Д. род. Дуб — даўгавечнае дрэва.* **2.** Разлічаны на доўгі час існавання; моцны, трывалы. *Надзейны і д. самазвал.* ‖ *наз.* **даўгаве́чнасць**, -і, *ж.*

**ДАЎГАВЫ́** *гл.* доўг.

**ДАЎГАГРЫ́ВЫ**, -ая, -ае. З доўгай грывай (пра коней). *Даўгагрывыя коні.*

**ДАЎГАДЗЮ́БЫ**, -ая, -ае. З доўгай дзюбай. *Д. журавель.*

**ДАЎГАКРЫ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** З доўгімі крыламі. *Д. стрыж.* **2.** *у знач. наз.* **даўгакры́лыя**, -ых. Атрад птушак, да якіх адносяцца стрыжы, калібры і пад. *Сямейства даўгакрылых.*

**ДАЎГАКРЫ́СЫ**, -ая, -ае. З доўгімі крысамі (пра адзенне). *Даўгакрысае паліто.*

**ДАЎГАЛЕ́ЦЦЕ**, -я, *н.* Доўгае жыццё. *Прыклад чалавечага даўгалецця.*

**ДАЎГАЛЫ́ГІ**, -ая, -ае (разм.). Вельмі высокі, худы і нязграбны. *Д. хлопец.*

**ДАЎГАНО́СІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Невялікі жук з доўгім хабатком, шкоднік сельскагаспадарчых раслін. *Свірнавы д.*

**ДАЎГАТА́**, -ы́, *ДМ* -гаце́, *мн.* -го́ты, -го́т, *ж.* Геаграфічная каардыната, якая вызначае месца пунктаў на паверхні Зямлі адносна пачатковага мерыдыяна. *Заходнія даўготы.*

**ДАЎГАХВА́ЛЕВЫ**, -ая, -ае. Які працуе на доўгіх хвалях, прымае доўгія хвалі. *Даўгахвалевая радыёстанцыя.*

**ДАЎГАЧА́СНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *доўгачасовы. Даўгачасная адсутнасць. Даўгачасная абарона.* ○ **Даўгачасны агнявы пункт** — моцнае абароннае збудаванне, прызначанае для вядзення агню з гармат, кулямётаў і інш. ‖ *наз.* **даўгача́снасць**, -і, *ж.*

**ДАЎГІ́**, -а́я, -о́е. Тое, што і *доўгі.*

**ДАЎГУНЕ́Ц**, -нцу́, *м.* Гатунак ільну з доўгім валакном.

**ДАЎЖНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто ўзяў у доўг, пазычыў у каго-н. *Жыве нядрэнна сам і мае многіх даўжнікоў.* ‖ *ж.* **даўжні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц.

**ДАЎЖЫНЯ́**, -і́, *мн.* даўжы́ні, даўжы́нь, *ж.* **1.** Працягласць лініі, плоскасці, цела паміж двума крайнімі іх пунктамі. *Змераць даўжыню стала. Меры даўжыні. Д. вуліцы. Д. ракі.* **2.** Працягласць у часе. *Д. рабочага дня.*

**ДАЎЖЭ́ЗНЫ**, -ая, -ае (разм.). Вельмі доўгі. *Прайшлі д. шлях. Д. дзень, як цэлы год.*

**ДАЎЖЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -жэ́е; *незак.* Станавіцца больш доўгім.

*Пад вечар цені даўжэюць. Вясной дні даўжэюць.* ‖ *зак.* **падаўжэ́ць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -жэ́е.

**ДА́ЎКІ**, -ая, -ае. Які перасядае ў горле, выклікае аскому. *Даўкія грушы.* ‖ *наз.* **да́ўкасць**, -і, *ж.*

**ДА́ЎНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Аддаленасць у часе якой-н. падзеі. *Справа гэта мае вялікую д.* **2.** Працягласць існавання чаго-н. *Д. нашага сяброўства.* **3.** Тэрмін, на працягу якога могуць быць заяўлены якія-н. патрабаванні або пасля якога набываецца або траціцца якое-н. права (спец.). *Іскавая д. Тэрмін даўнасці мінуў.*

**ДАЎНЕ́Й**, *прысл.* У старыя часы, у далёкім мінулым. *Д. людзі хадзілі ў саматканым адзенні.*

**ДАЎНЕ́ЙШЫ**, -ая, -ае. **1.** *Выш. ст.* да прыметніка даўні. **2.** Які адбыўся задоўга да цяперашняга часу; старадаўні. *Даўнейшыя звычаі адышлі ў нябыт.* **3.** *у знач. наз.* **даўне́йшае**, -ага, *н.* Мінулае, час, які папярэднічаў сучаснаму. *Д. не вернецца ніколі.*

**ДА́ЎНІ**, -яя, -яе. **1.** Які быў, адбыўся даўно. *Прыгадаўся д. выпадак.* **2.** Які існуе здаўна. *Даўняе знаёмства. Справа даўняя — ужо не мае значэння.*

**ДАЎНІНА́**, -ы́, *ж.* (разм.). Былыя, даўнія часы; старадаўнасць. *Пачаў успамінаць даўніну. Гэта памяць даўніны глыбокай.*

**ДАЎНО́**, *прысл.* **1.** Многа часу таму назад, раней. *Д. гэта было.* **2.** На працягу доўгага часу. *Ён д. тут жыве.* ◊ **Даўно б так!** — ужыв. пры адабрэнні чыйго-н. учынку. **З давён-даўна** — з даўніх часоў. ‖ *ласк.* **даўне́нька** (разм.).

**ДАЎНОМІНУ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які існаваў, адбыўся ў далёкім мінулым. *Даўномінулыя падзеі.* ○ **Даўномінулы час** — у граматыцы: асобая форма дзеяслова прошлага часу ў некаторых мовах, што абазначае дзеянне, якое папярэднічала другому дзеянню мінулага часу.

**ДАФЕАДА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да эпохі, што папярэднічала феадалізму. *Д. перыяд гісторыі.*

**ДАХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Верхняя частка будынка, якая засцерагае яго ад дажджу, снегу. *Чарапічны д.* **2.** Пра дом, жыллё, прытулак. ◊ **Пад адным дахам** (разм.) — у адным доме з кім-н. ‖ *прым.* **да́хавы**, -ая, -ае. *Дахавае жалеза.*

**ДАХА́**, -і́, *ДМ* дасе́, *мн.* до́хі *і (з ліч. 2, 3, 4)* дахі́, дох, *ж.* Шуба з футравым верхам і футравай падкладкай. *Мядзведжая д.*

**ДАХА́ТЫ**, *прысл.* Дадому, да сваёй сям'і; у родныя мясціны. *Ісці д. На канікулы ехаць д.*

**ДАХАЎШЧЫ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Рабочы, спецыяліст, які крые дах. *Для работы нанялі дахаўшчыка.* ‖ *прым.* **дахаўшчы́цкі**, -ая, -ае.

**ДАХО́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грошы ці матэрыяльныя каштоўнасці, якія атрымліваюць у выніку якой-н. дзейнасці. *Мільённыя даходы. Нацыянальны д. Неправацоўныя даходы.* ‖ *прым.* **дахо́дны**, -ая, -ае. *Даходная частка бюджэту.*

**ДАХО́ДЗІЦЬ** *гл.* дайсці.

**ДАХО́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Даступны для разумення. *Даклад быў напісаны даходлівай мовай.* ‖ *наз.* **дахо́длівасць**, -і, *ж.*

**ДАХО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* даход. **2.** Прыбытковы, які прыносіць даход. *Даходнае прадпрыемства.* ‖ *наз.* **дахо́днасць**, -і, *ж.*

**ДАХО́ЎКА**, -і, *ж.* **1.** *зб.* Дахавы матэрыял у выглядзе драўляных або гліняных пласцін. **2.** *мн.* -і, -вак. Асобная такая пласціна.

**ДА́ЦКІ** *гл.* датчане.

**ДА́ЦЦА**, да́мся, дасі́ся, да́сца; дадзі́мся, дасцё́ся, даду́цца; да́ўся, дала́ся, дало́ся; да́йся; *зак.* **1.** Дазволіць што-н. з сабой зрабіць; паддацца. *Конь не даўся Сяргею.* **2.** Засвоіцца, паддацца асваенню. *Матэматыка яму далася лёгка.* **3.** Стукнуцца чым-н. аб што-н. (разм.). *Моцна даўся галавой аб вушак.* **4.** Стаць прадметам увагі (разм.). *Даўся табе гэты пустаслоў.* ◊ **Даццца ў знакі** (разм.) — даняць, надоўга запомніцца. **Дзіву даццца** — моцна здзівіцца. ‖ *незак.* **дава́цца**, даюся, дае́шся, дае́цца; даёмся, даяцё́ся, даю́цца (да 1 і 2 знач.).

**ДАЦЬ**, дам, дасі́, дасць; дадзі́м, дасце́, даду́ць; даў, дала́, дало́; дай; да́дзены; *зак.* **1.** *каго-што каму.* Уручыць, перадаць з рук у рукі непасрэдна. *Д. кнігу. Д. грошы на дарогу.* **2.** Паведаміць, перадаць. *Д. свой адрас.* **3.** Заплаціць якую-н. суму. *Колькі дасі за боты?* **4.** *што* або *з інф., каму.* Аддаць у карыстанне, забяспечыць чым-н. *Д. кватэру. Д. работу. Д. дарогу. Д. магчымасць што-н. зрабіць.* **5.** *што каму.* Прынесці як вынік чаго-н. *Зямля дала багаты ўраджай.* **6.** *што каму* і *без дап.* Арганізаваць для каго-н. якое-н. мерапрыемства. *Д. абед. Д. канцэрт у гонар госця.* **7.** *што каму-чаму.* Вызначыць узрост. *На выгляд яму не дасі і сарака гадоў.* **8.** *што.* З назоўнікам утварае спалучэнне са знач. таго ці іншага дзеяння ў залежнасці ад сэнсу назоўніка. *Д. асечку. Д. званок. Д. асадак. Д. абяцанне. Д. паказанне. Д. згоду.* **9.** *што.* Асудзіць, прыгаварыць да зняволення (разм.). *Д. спагнанне. Спірыду за хуліганства далі год.* **10.** Нанесці ўдар (разм.). *Д. поўху. Д. у зубы.* **11.** *у знач. часц.* **дай.** Абазначае спробу зрабіць што-н. або подступ да дзеяння (разм.). *Дай, думаю, сяду, адпачну.* ◊ **Даць аб сабе знаць** — прыслаць аб сабе вестку; абазвацца. **Дай бог ногі** (разм.) — пра жаданне хутчэй уцячы адкуль-н. **Дай бог чутае бачыць** (разм.) — пажаданне здзейсніць абяцанне. **Даць волю рукам** — біць каго-н., біцца. **Даць галаву на адсячэнне** — паручыцца сваім жыццём. **Даць дрозда** (разм.) — вызначыцца ў працы, танцах, гульні. **Даць драла (дзёру, драпака, лататы)** (разм.) — пусціцца наўцёкі. **Даць дуба** (разм.) — памерці. **Даць дулю** (разм.) — нічога не даць. **Даць дыхту** (разм.) — сурова расправіцца. **Даць зразумець** — намякнуўшы, даць магчымасць здагадацца. **Даць кругу** (разм.) — прайсці ці праехаць лішнюю адлегласць абходнай дарогай. **Даць па руках** — пакараць; рашуча папярэдзіць. **Даць пачатак** — з'явіцца крыніцай чаго-н., адпраўным пунктам. **Даць пытлю** (разм.) — адлупцаваць каго-н. **Даць слова** — 1) дазволіць выступіць на сходзе; 2) цвёрда паабяцаць. **Даць у лапу** (разм.) — падкупіць каго-н. хабарам. **Даць цягу** (разм.) — уцячы. **Не даць (сябе) у крыўду** — заступіцца, абараніць. **Не даць ходу** — затрымаць што-н. ‖ *незак.* **дава́ць**, даю́, дае́ш, дае́; даём, даяце́, даю́ць. ‖ *наз.* **да́ча**, -ы (да 8 знач.). *Д. паказанняў.*

**ДАЦЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вучонае званне выкладчыка вышэйшай навучальнай установы або супрацоўніка навуковай арганізацыі, якое папярэднічае прафесару, а таксама асоба, якая мае гэта званне. ‖ *прым.* **дацэ́нцкі**, -ая, -ае.

**ДАЦЭ́НТРАВЫ**, -ая, -ае (спец.). Які накіроўваецца ў руху ад перыферыі да цэнтра. *Дацэнтравая сіла.*

**ДАЦЭНТУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Званне, пасада дацэнта. *Атрымаць дацэнтуру.* **2.** *зб.* Дацэнты. *Прысутнічала ўся д.*

**ДАЦЯГНУ́ЦЦА**, -цягну́ся, -ця́гнешся, -ця́гнецца; -цягні́ся; *зак., да чаго.* **1.** Выцягваючыся, дастаць што-н., дакрануцца да чаго-н. *Д. да столі.* **2.** Узрастаючы, павялічваючыся, дасягнуць якой-н. мяжы. *Чарга дацягнулася да дзвярэй.* **3.** Марудна праходзячы, дасягнуць якога-н. тэрміну. *Час дацягнуўся да восені.* **4.** З цяжкасцю дайсці да якога-н. месца (разм.). *Стары ледзь дацягнуўся да ложка.* ‖ *незак.* **даця́гвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАЦЯГНУ́ЦЬ**, -цягну́, -ця́гнеш, -ця́гне; -цягні́; -ця́гнуты; *зак.* **1.** *што.* Працягнуць (у 1—3 знач.) да якой-н. мяжы. *Д. руку да паліцы. Д. провад да вёскі. Д. песню да канца.* **2.** *каго-што да чаго.* Цягнучы, даставіць куды-н., да чаго-н. *Д. бервяно да берага.* **3.** *што* і *без дап.* З цяжкасцю дасягнуць, даставіць да якога-н. месца (разм.). *Самалёт ледзь дацягнуў да аэрадрома.* **4.** *што да чаго.* Зацягнуць выкананне, прамарудзіць з якой-н. справай (разм.). *Д. здачу залікаў да восені.* **5.** Пражыць у якім-н. стане да пэўнага часу, падзеі (разм.). *Хворы дацягнуў да вясны. Д. да зарплаты.* ‖ *незак.* **даця́гваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАЦЯМНА́**, *прысл.* Да таго часу, калі сцямнее. *Дзеці гулялі д.*

**ДА́ЧА**[1], -ы, *ж.* **1.** *гл.* даць. **2.** Порцыя корму на адзін прыём. *Д. аўса. Сутачная д. сена.*

**ДА́ЧА**[2], -ы, *мн.* -ы, дач, *ж.* Тое, што і *лецішча. Жыць на дачы.* ‖ *памянш.* **да́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **да́чны**, -ая, -ае. *Д. ўчастак.*

**ДА́ЧА**[3], -ы, *мн.* -ы, дач, *ж.* (уст.). Частка лясніцтва, вылучаная ў самастойную гаспадарку. *Лясныя дачы.*

**ДАЧАКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** *каго-чаго.* Праіснаваць, прабыць да

з'яўлення чаканага. *Д. перамогі. Д. цягніка.* **2.** *чаго* і *без дап.* Сваімі паводзінамі давесці сябе да чаго-н. непрыемнага. *З гэтымі махінацыямі ён дачакаецца непрыемнасцей. Ты ў мяне дачакаешся!*

**ДАЧАРНА́**, *прысл.* Да чарнаты, чорнага колеру. *За лета загарэў д.*

**ДАЧА́СНЫ**, -ая, -ае. Які адбыўся раней тэрміну. *Дачаснае выступленне. Дачасна* (прысл.) *абарвалася жыццё.* ‖ *наз.* **дача́снасць**, -і, *ж.*

**ДАЧАЎЛАДА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Уласнік, гаспадар дачы[2]. ‖ *ж.* **дачаўлада́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **дачаўлада́льніцкі**, -ая, -ае.

**ДАЧКА́**, -і́, *ДМ* дачцэ́, *мн.* до́чкі *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) дачкі́, дачо́к, *ж.* **1.** Асоба жаночага полу ў адносінах да сваіх бацькоў. **2.** Жанчына як носьбіт лепшых рыс свайго народа, грамадства, краіны (высок.). *Вера Харужая — слаўная д. беларускага народа.* ‖ *памянш.-ласк.* **дачу́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (да 1 знач.) *і* **до́чухна**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **даччы́н**, -а́, -о́ (да 1 знач.). *Даччына сукенка.*

**ДА́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто жыве, адпачывае летам на дачы[2]. *Летам тут сем'ямі жывуць дачнікі.* ‖ *ж.* **да́чніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДАЧУ́ЦЦА**, -чу́юся, -чу́ешся, -чу́ецца; -чу́ўся, -чу́лася, -чу́ліся; *зак., пра кагошто* і *аб кім-чым* (разм.). Даведацца з чутак, дазнацца. *Пра пажар ён дачуўся ўчора. Аб узнагародзе старшыня дачуўся толькі сёння.* ‖ *незак.* **дачува́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (разм.).

**ДАЧЧЫ́НЫ**, -ая, -ае (спец.). Які ўтварыўся ў выніку аддзялення ад чаго-н. *Даччыная фірма.*

**ДАЧЫНЕ́ННЕ**, -я, *н.* Сувязь з кім-, чым-н.; адносіны да каго-, чаго-н. *Мець д. да справы.*

**ДАЧЫ́РВАНА**, *прысл.* Да чырвонага колеру. *Жалеза распалілася д.*

**ДАЧЫ́СТА**, *прысл.* Падчыстую, нічога не пакідаючы. *З'елі ўсё д. Абакралі д.*

**ДАЧЫТА́ЦЬ**, -та́ю, -та́еш, -та́е; -та́ны; *зак., што.* **1.** Скончыць чытанне чаго-н. *Д. раман.* **2.** Прачытаць да якога-н. месца. *Д. кнігу да другога раздзела.* ‖ *незак.* **дачы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДАШКО́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Дзіця дашкольнага ўзросту. *Рэгістрацыя дашкольнікаў.* ‖ *ж.* **дашко́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДАШКО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да ўзросту, што папярэднічае паступленню дзіцяці ў школу. *Дашкольнае выхаванне. Дашкольныя ўстановы.*

**ДАШУКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). **1.** *каго-чаго.* Настойліва шукаючы, знайсці. *Не магу д. ключоў.* **2.** *чаго.* Даведацца, высветліць. *Д. праўды.* ‖ *незак.* **дашу́квацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ДАШЧА́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). **1.** Будыніна з дошак. *Улетку і ў дашчаніку добра.* **2.** Вялікая лодка з плоскім дном. *Д. ваду прапускае.*

**ДАШЧА́НЫ**, -ая, -ае. Зроблены з дошак. *Дашчаная перагародка.*

**ДАШЧЭ́НТУ**, *прысл.* Канчаткова, поўнасцю. *Хата згарэла д. Землетрасенне разбурыла горад д.*

**ДАЯДА́ЦЬ** *гл.* даесці.

**ДАЯЗДЖА́ЦЬ** *гл.* даехаць.

**ДАЯ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Работніца, якая доіць і даглядае кароў. *Працаваць даяркай.* ‖ *м.* **дая́р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў.

**ДБА́ЙНЫ**, -ая, -ае. Старанны, руплівы. *Д. гаспадар. Дбайныя рукі. Усё ў гумне дбайна* (прысл.) *дагледжана.* ‖ *наз.* **дба́йнасць**, -і, *ж.*

**ДБАЦЬ**, дба́ю, дба́еш, дба́е; *незак., пра каго-што, аб кім-чым* і *без дап.* Праяўляць клопаты аб кім-, чым-н., турбавацца пра каго-, што-н. *Аб ім дбалі чужыя людзі. Д. пра парадак у гаспадарцы. Хто дбае, той і мае* (з нар.). ◊ **І не дбае** — не звяртае ўвагі. ‖ *зак.* **падба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **дба́нне**, -я, *н.*

**ДВА**, двух, двум, двума́, (аб) двух, *м.* і *н.;* дзве, дзвюх, дзвюм, дзвюма́, (аб) дзвюх, *ж., ліч. кольк.* Лік, лічба і колькасць 2. *Двойчы д. — чатыры. Напісаць лічбу д. Д. сярпы. Дзве хвіліны. За аднаго бітага двух нябітых даюць* (прыказка). ◊ **Бачыць на два аршыны пад зямлёй** (разм., часта іран.) — адрозніваецца вялікай праніклівасцю. **Ні два і ні паўтара** (разм.) — пра што-н. няпэўнае. **Як двойчы два (чатыры)** — бясспрэчна, зразумела, ясна. ‖ *парадк.* **другі́**, -о́е, -а́я. *Д. год. Д. па парадку. Другога мая.*

**ДВАІ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які складаецца з дзвюх аднародных частак. *Д. след.* **2.** Такі, які змяшчае ў сабе дзве розныя якасці, часта супярэчлівыя. *Дваістая натура. Дваістае пачуццё. Дваістая палітыка крахам канчаецца.* ‖ *наз.* **дваі́стасць**, -і, *ж.*

**ДВАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., дво́іцца; *незак.* **1.** Раздзяляцца на дзве часткі; раздвойвацца. **2.** Здавацца падвоеным (пра зрокавае ўспрыняцце). *У вачах дваіліся ўсе прадметы. Хто баіцца, таму ўваччу дваіцца* (прыказка).

**ДВАІ́ЦЬ**, дваю́, дво́іш, дво́іць; *незак., што.* **1.** Паўторна ўзорваць, пераворваць. *Д. поле.* **2.** Падзяляць на дзве часткі (спец.). *Д. скуры.* ‖ *зак.* **падваі́ць**, -ваю́, -во́іш, -во́іць; -во́ены. ‖ *наз.* **двае́нне**, -я, *н.*

**ДВАЙКО́ВЫ**, -ая, -ае. Звязаны з дзвюма велічынямі або які складаецца з двух кампанентаў. ○ **Двайковая сістэма злічэння** — пазіцыйная сістэма злічэння з асновай 2 (для запісу ліку выкарыстоўваюцца толькі дзве лічбы — 0 і 1).

**ДВАЙНІ́К**[1], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м., чый* або *каго.* Чалавек, які мае поўнае падабенства з другім чалавекам. *Мой д.*

**ДВАЙНІ́К**[2], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Двухпудовая гіра. *Спартсмен практыкуецца з двайніком.*

**ДВАЙНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які складаецца з дзвюх аднародных частак ці прадметаў. *Чамадан з двайным дном.* **2.** У два разы большы; падвоены. *Д. расход.*

**ДВАЙНЯ́ТЫ**, -ня́т (разм.). Двое дзяцей, якіх адначасова нарадзіла адна маці.

**ДВАНАЦЦАЦІПЕ́РСНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **дванаццаціперсная кішка** — частка тонкай кішкі чалавека, якая ідзе ад страўніка.

**ДВАНА́ЦЦАЦЬ**, -і, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 12. *Тры разы па чатыры — д. Д. месяцаў.* ‖ *парадк.* **двана́ццаты**, -ая, -ае.

**ДВАРАНІ́Н**, -а, *мн.* -ра́не *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) дваранíны, -ра́н, *м.* Асоба, якая належыць да дваранства. ‖ *ж.* **двара́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **двара́нскі**, -ая, -ае.

**ДВАРА́НСТВА**, -а, *н.* (гіст.). Вышэйшы прывілеяваны пануючы клас, які ўзнік у феадальным грамадстве. ‖ *прым.* **двара́нскі**, -ая, -ае.

**ДВАРНЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Дваровы непародзісты сабака. *Насустрач нам кінуўся здаравенны д.*

**ДВАРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адносіцца да хаты, сядзібы, знаходзіцца на двары[1] (у 1 і 2 знач.). *Дваровыя пабудовы.* **2.** Прыгонны, узяты ў панскі двор для абслугоўвання памешчыка (пра сялян). *Дваровыя людзі. Флігель для дваровых* (наз.).

**ДВАРЫ́ШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ры́шч *і* -аў, *н.* Участак з хатай і іншымі гаспадарчымі будынкамі; сядзіба. *Д. зарасло травой.*

**ДВАРЭ́Ц**, -рца́, *мн.* -рцы́, -рцо́ў, *м.* Будынак, у якім пражывае манарх са сваёй сям'ёй, а таксама вялікі і прыгожы па архітэктуры будынак наогул; палац. *Мармуровыя дварцы Венецыі.* ‖ *прым.* **дварцо́вы**, -ая, -ае. ○ **Дварцовы пераварот** — змена манарха прыдворнай знаццю без удзелу народных грамадскіх мас.

**ДВАРЭ́ЦКІ**, -ага, *мн.* -ія, -іх, *м.* (гіст.). Старшы лакей у панскім доме, які кіраваў хатняй гаспадаркай і прыслугай.

**ДВАЦЦАЦІГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дваццаціголддзе. **2.** Які праіснаваў дваццаць гадоў або мае такі ўзрост. *Дваццацігадовая служба. Д. юнак.*

**ДВАЦЦАЦІГО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Тэрмін у дваццаць гадоў. *З той пары мінула цэлае д.* **2.** Гадавіна падзеі, што адбылася дваццаць гадоў назад. *Адзначыць д. працоўнай дзейнасці. Адзначыць сваё д.* ‖ *прым.* **дваццацігадо́вы**, -ая, -ае.

**ДВА́ЦЦАЦЬ**, -і́, -ццю́, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 20. *Д. дзеліцца на пяць. Д. рублёў.* ‖ *парадк.* **двацца́ты**, -ая, -ае.

**ДВАЮ́РАДНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *стрыечны.*

**ДВАЯ...** (*гл.* **двое...**). Першая састаўная частка складаных слоў, ужыв. замест «двое...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *дваяборац, дваяверац, дваяжэнец, дваяшлюбнасць.*

**ДВАЯБО́РАЦ**, -рца, *мн.* -рцы, -рцаў, *м.* Спартсмен, які ўдзельнічае ў дваяборстве.

**ДВАЯБО́РСТВА**, -а, *н.* Спартыўнае спаборніцтва, якое складаецца з двух відаў практыкаванняў. *Лыжнае д. Цяжкаатлетычнае д.*

**ДВАЯКАВЫ́ПУКЛЫ**, -ая, -ае. Выпуклы з абодвух бакоў. *Дваякавыпуклая лінза.*

**ДВАЯКАДЫ́ХАЮЧЫЯ**, -ых (спец.). Падклас рыб, якія дыхаюць не толькі жабрамі, але і лёгкімі.

**ДВАЯКАЎВАГНУ́ТЫ**, -ая, -ае. Увагнуты з абодвух бакоў. *Дваякаўвагнутае шкло.*

**ДВАЯ́КІ**, -ая, -ае. Які праяўляецца ў двух розных відах, формах і пад.

**ДВО́Е**, дваі́х, дваі́м, дваі́мі, *ліч. зб.* Два. Ужыв.: а) з назоўнікамі мужчынскага або агульнага роду, якія абазначаюць асобу. *Засталося д. сірот;* б) з асабовымі займеннікамі ў мн. л. *Нас было д.;* в) з назоўнікамі, якія абазначаюць маладых істот. *Бегае д. парасят. Д. дзяцей;* г) з множналікавымі назоўнікамі. *Д. саней. Д. нажніц. Д. акуляраў. Д. штаноў. Д. сутак;* д) з некаторымі назоўнікамі, якія абазначаюць парныя прадметы. *Д. ботаў. Д. рукавіц. Абуць д. панчох;* е) без назоўнікаў, калі абазначае асоб мужчынскага і жаночага полу. *Сядзелі д.: хлопец і дзяўчына.* ◊ **На сваіх дваіх** (разм., жарт.) — пехатой. **За дваіх** (працаваць, есці і пад.) — так, як могуць двое.

**ДВОЕ...** (а таксама **двая...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. два, двайны, напр., *двоеўладдзе.*

**ДВОЕЎЛА́ДДЗЕ**, -я, *н.* Адначасовае існаванне дзвюх улад у адной краіне, арганізацыі і пад. ‖ *прым.* **двоеўла́дны**, -ая, -ае.

**ДВО́ЕЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Вучань, які часта атрымлівае нездавальняючыя адзнакі. ‖ *ж.* **дво́ечніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДВО́ЙКА**, -і, *ДМ* дво́йцы, *мн.* -і, дво́ек, *ж.* **1.** Лічба 2. **2.** Група з двух чалавек або двух аднародных прадметаў. **3.** Нездавальняючая школьная адзнака. **4.** Назва чаго-н., абазначанага лічбай 2.

**ДВО́ЙЧЫ**, *прысл.* Два разы. *Д. сказаць. Д. тры — шэсць.*

**ДВОР**[1], двара́, *мн.* двары́, двaро́ў, *м.* **1.** Участак зямлі пры доме, хаце паміж гаспадарчымі будынкамі. *Выйсці з хаты на д.* **2.** Сялянскі дом з усімі будынкамі каля яго; асобная сялянская гаспадарка. *Вёска на сорак двароў.* **3.** Маёнтак (гіст.). *Панскі д.* **4.** Гаспадарчы цэнтр сельскагаспадарчага прадпрыемства. *Жывёльны д. Птушыны д.* ○ **Манетны двор** — дзяржаўнае прадпрыемства, дзе адбываецца чаканка манет і выраблююцца ордэны, медалі і інш. **Заезны двор** — памяшканне пры дарозе для начлегу з месцам для коней. ◊ **На дварэ** — на адкрытым паветры, не ў хаце. **Ні кала ні двара** *у каго* (разм.) — няма нічога.

**ДВОР**[2], двара́, *мн.* двары́, двaро́ў, *м.* У манархічных краінах: манарх і яго прыбліжаныя. *Царскі д. Быць пры двары.*

**ДВО́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Работнік, які падтрымлівае чысціню і парадак на двары і на вуліцы каля дома. **2.** Прыстасаванне для механічнага ачышчэння ветравога шкла ў машыне ад снегу, вільгаці, пылу і інш. ‖ *ж.* **дво́рнічыха**, -і, *ДМ* -чысе, *мн.* -і, -чых (да 1 знач.; разм.). ‖ *прым.* **дво́рніцкі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ДВО́РНІЦКАЯ**, -ай, *мн.* -ія, -іх, *ж.* Памяшканне для дворніка.

**ДВО́РНЯ**, -і, *ж., зб.* У часы прыгону: прыслуга ў памешчыцкім доме. *Збеглася ўся д.*

**ДВО́РЫШЧА**, -а, *мн.* -ы, -рышч *і* -аў, *н.* (гіст.). Месца, дзе раней быў двор, жыллё радавітай асобы. *Радзівілава д.*

**ДВУ...** *і* **ДВУХ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які складаецца з дзвюх адзінак, які мае дзве адзінкі, прыкметы, напр.: *двудушны, двурушны, двухгадовы, двухгалосны, двухгорбы, двухгранны, двухкапеечны, двухматорны, двухпакаёвы, двухрогі, двух'ярусны.*

**ДВУДУ́ШНЫ**, -ая, -ае. Няшчыры, крывадушны. *Гэта быў д. чалавек.* ‖ *наз.* **двуду́шнасць**, -і, *ж.*

**ДВУКО́ССЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Спецыяльныя значкі (« » ці " ") для выдзялення ў тэксце простай мовы, цытат, загалоўкаў, а таксама слоў, ужытых ва ўмоўным або іранічным сэнсе. *Узяць цытату ў д. Закрыць д.*

**ДВУКРО́П'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Знак прыпынку ў выглядзе дзвюх кропак, размешчаных адна над адной (:). *Паставіць д.*

**ДВУРУ́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які знешне выражае адданасць аднаму, а ўпотай дзейнічае супраць. ‖ *ж.* **двуру́шніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **двуру́шніцкі**, -ая, -ае.

**ДВУРУ́ШНІЦТВА**, -а, *н.* Паводзіны двурушніка. *Палітычнае д.* ‖ *прым.* **двуру́шніцкі**, -ая, -ае.

**ДВУРУ́ШНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Быць двурушнікам, дзейнічаць як двурушнік. ‖ *зак.* **здвуру́шнічаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ДВУХ...** *гл.* дву...

**ДВУХАБЛІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *двудушны.* ‖ *наз.* **двухаблі́чнасць**, -і, *ж.*

**ДВУХАДЗІ́НЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які складаецца з дзвюх частак, двух элементаў і ўтварае адзінства.

**ДВУХБО́РТНЫ**, -ая, -ае. Які мае два барты з гузікамі на кожным (пра адзенне). *Д. касцюм.*

**ДВУХВЯРСТО́ВЫ**, -ая, -ае (уст.). **1.** Працягласцю ў дзве вярсты. *Двухвярстовая адлегласць.* **2.** Маштабам дзве вярсты ў цалі (пра карту).

**ДВУХГАДЗІ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які працягваецца дзве гадзіны. *Д. даклад.* **2.** Які прыбывае ці ад'язджае ў дзве гадзіны (пра цягнік, параход і пад.; разм.). *Д. параход.*

**ДВУХГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* двухгоддзе. **2.** Які праіснаваў, пражыў два гады. *Д. тэрмін. Двухгадовае дзіця.*

**ДВУХГАЛО́ВЫ**, -ая, -ае. З дзвюма галовамі. *Д. змей.* ○ **Двухгаловы арол** — відарыс арла з дзвюма галовамі на дзяржаўным гербе Расійскай Федэрацыі.

**ДВУХГО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Тэрмін у два гады. *Мінулае д.* **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, якая адбылася два гады назад. *Споўнілася д. са дня прыняцця Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь».* ‖ *прым.* **двухгадо́вы**, -ая, -ае.

**ДВУХДЗЁННЫ**, -ая, -ае. **1.** Працягласцю ў два дні. *Д. турысцкі паход.* **2.** Разлічаны, прызначаны на два дні. *Д. запас харчоў.*

**ДВУХДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). **1.** Які складаецца з дзвюх семядоль. *Двухдольныя расліны.* **2.** *у знач. наз.* **двухдо́льныя**, -ых. Клас пакрытанасенных раслін, зародак якіх складаецца з дзвюх семядоль. **3.** Які складаецца з дзвюх рытмічных долей, частак. *Д. памер верша.*

**ДВУХДО́МНЫ**, -ая, -ае (спец.). **1.** Такі, у якога мужчынскія і жаночыя кветкі знаходзяцца на розных асобінах (пра расліны). *Каноплі, крапіва — двухдомныя расліны.* **2.** *у знач. наз.* **двухдо́мныя**, -ых. Клас раслін, у якіх мужчынскія і жаночыя кветкі знаходзяцца на розных асобінах. *Сямейства двухдомных.*

**ДВУХЖЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўяўляе сабой дзве скручаныя жылы, ніці. *Д. правад.* **2.** Вынослівы, дужы, моцны (разм.). *Наша пакаленне двухжыльнае, яно ўсё перамагло, усё адолела.*

**ДВУХЗМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца, выконваецца ў дзве змены; працягласцю ў дзве змены. *Двухзменная работа. Д. заняткі ва ўніверсітэце.*

**ДВУХЗНА́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з двух знакаў. *Д. лік.*

**ДВУХКІЛАМЕТРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Працягласцю ў два кіламетры. *Двухкіламетровую зону лесу займалі партызаны.* **2.** Маштабам два кіламетры ў сантыметры. *Двухкіламетровая карта.*

**ДВУХКО́ЛЕРНЫ**, -ая, -ае. Які мае ў сваёй афарбоўцы два колеры або складаецца з дзвюх частак рознага колеру. *Двухколерная тканіна. Д. сцяг.*

**ДВУХКО́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Павозка на двух колах. *Санітарныя двухколкі адвозілі раненых.*

**ДВУХКО́ЛЫ**, -ая, -ае. На двух колах. *Дзіцячы д. ровар.*

**ДВУХКРА́ТНЫ**, -ая, -ае. Двухразовы; павялічаны ў два разы. *Д. напамін. У двухкратным памеры. Д. чэмпіён.*

**ДВУХКРЫ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** З двума крыламі. *Д. планёр.* **2.** *у знач. наз.* **двухкры́лыя**, -ых. Атрад насякомых, які мае адну пару крылаў (напр., мухі, камары і пад.).

**ДВУХЛІТРО́ВЫ**, -ая, -ае. Ёмістасцю ў два літры. *Д. збан.*

**ДВУХМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які мае два вымярэнні. ‖ *наз.* **двухме́рнасць**, -і, *ж.*

**ДВУХМЕ́СНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для дваіх. *Двухмеснае купэ. Д. нумар.*

**ДВУХМЕТРО́ВЫ**, -ая, -ае. Даўжынёй у два метры. *Двухметровая вышыня.*

**ДВУХМО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які карыстаецца дзвюма мовамі. *Двухмоўнае насельніцтва.* **2.** Складзены на дзвюх мовах. *Д. слоўнік.* ‖ *наз.* **двухмо́ўе**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ДВУХПАВЯРХО́ВЫ**, -ая, -ае. Вышынёй у два паверхі. *Д. дом.*

**ДВУХПАКАЁВЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з двух пакояў. *Двухпакаёвая кватэра.*

**ДВУХПАЛА́ТНЫ**, -ая, -ае. Які мае дзве палаты[2]. *Д. парламент.*

**ДВУХПА́ЛУБНЫ**, -ая, -ае. Які мае дзве палубы (пра карабель, самалёт). *Д. параход. Д. аэробус.*

**ДВУХПА́ЛЬЦЫ**, -ая, -ае. Які мае толькі два пальцы (у 1 знач.).

**ДВУХПО́ЛЛЕ**, -я, *н.* Стары спосаб апрацоўкі зямлі, пры якім кожны год палавіна зямлі заставалася пад папарам. ‖ *прым.* **двухпо́льны**, -ая, -ае.

**ДВУХПО́ЛЫ**, -ая, -ае (спец.). **1.** Які мае адзнакі мужчынскага і жаночага полу (пра арганізм чалавека, жывёлы). **2.** Які мае тычынкі і песцікі ў адной кветцы. *Двухполыя кветкі.*

**ДВУХРАДКО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Страфа з двух радкоў.

**ДВУХРАЗО́ВЫ**, -ая, -ае. Які праводзіцца два разы ў які-н. прамежак часу. *Двухразовае харчаванне.*

**ДВУХРУ́ЧНЫ**, -ая, -ае. З дзвюма ручкамі. *Двухручная піла.*

**ДВУХСКЛАДО́ВЫ**, -ая, -ае. Які мае два склады. *Двухскладовае слова.* ‖ *наз.* **двухскладо́васць**, -і, *ж.*

**ДВУХСОТГО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Тэрмін у дзвесце гадоў. **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, якая адбылася дзвесце гадоў назад. *Д. заснавання горада.* ‖ *прым.* **двухсоттадо́вы**, -ая, -ае.

**ДВУХСО́ТЫ** *гл.* дзвесце.

**ДВУХСПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Разлічаны для спання ўдваіх. *Д. ложак. Двухспальная коўдра.*

**ДВУХСТВО́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Паляўнічая стрэльба з двума ствааламі; дубальтоўка.

**ДВУХСТВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае два ствалы. *Двухствольнае ружжо.*

**ДВУХСТВО́РКАВЫ**, -ая, -ае. З дзвюма створкамі. *Двухстворкавыя дзверы. Двухстворкавая ракавіна малюска.*

**ДВУХСХІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае два схілы. *Д. дах.*

**ДВУХСЭ́НСАВЫ**, -ая, -ае. З дваякім сэнсам; які можна дваяка разумець. *Д. выраз. Двухсэнсавае становішча.* ‖ *наз.* **двухсэ́нсавасць**, -і, *ж.*

**ДВУХТА́КТАВЫ**, -ая, -ае (спец.). **1.** Працягласцю ў два такты. *Двухтактавая паўза.* **2.** У якім рабочы працэс адбываецца за два такты, два хады поршня (пра рухавік унутранага згарання). *Д. матор.*

**ДВУХТО́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Твор або збор твораў у двух тамах. *Д. Максіма Багдановіча.*

**ДВУХТО́МНЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з двух тамоў. *Д. збор твораў.*

**ДВУХТЫДНЁВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які жыве, існуе, працягваецца два тыдні. *Двухтыднёвыя парасяты. Д. адпачынак.* **2.** Які выходзіць раз у два тыдні (пра перыядычныя выданні).

**ДВУХТЫ́СЯЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *Ліч. парадк.* да дзве тысячы. **2.** Які складаецца з дзвюх тысяч якіх-н. адзінак. *Д. атрад.*

**ДВУХЧЛЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Алгебраічны выраз, які ўяўляе сабой суму або рознасць двух адначленаў; біном. ‖ *прым.* **двухчле́нны**, -ая, -ае.

**ДЖАЗ**, -а, *м.* **1.** Форма музычнага мастацтва, якая ўзнікла ў канцы 19 — пачатку 20 ст. і спалучае ў сабе рысы еўрапейскай і афрыканскай культур. *Іграць у стылі д. Аматары джаза.* **2.** Аркестр, які складаецца пераважна з духавых, ударных шумавых інструментаў, уключае спевакоў-салістаў і выконвае такую музыку. *Іграе д.* ‖ *прым.* **джа́завы**, -ая, -ае. *Джазавая музыка. Д. выканаўца.*

**ДЖАЗ-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да джаза, напр.: *джаз-фестываль, джаз-аркестр, джаз-музыка, джаз-банд.*

**ДЖАЗІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які грае ў джазе.

**ДЖА́ЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Колючы орган ці частка цела жывёл і раслін для ўпрысквання атрутнага рэчыва. *Д. пчалы. Змяінае д.* **2.** Вастрыё колючага ці рэжучага інструмента, прадмета. *Д. касы.* **3.** *перан.* Пра што-н. вострае, з'едлівае. *Д. сатыры.* ‖ *памянш.* **джа́льца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.*

**ДЖА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак., каго-што.* **1.** Раніць, упіваецца джалам, кусаць (пра насякомых, змей). *Пчолы джаляць.* **2.** *перан.* Раніць крыўднымі словамі, колкімі заўвагамі. *Крытычныя выказванні джалілі яго, выводзілі з раўнавагі.* ‖ *зак.* **уджа́ліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены. *Уджаліла змяя.*

**ДЖГАЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* (разм.). **1.** *каго (што).* Калоць, раніць джалам (пра насякомых, змей). *Авадні і сляпні джгалі нясцерпна.* **2.** Хутка ісці або бегчы. *Лявон джгаў без аглядкі.* ‖ *аднакр.* **джгану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **джгнуць**, -ну, -неш, -не; -нём, -няце́, -нуць; -ні. ‖ *наз.* **джга́нне**, -я, *н.*

**ДЖОЎЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Адзінка вымярэння энергіі, работы і колькасці цеплыні.

**ДЖУ́НГЛІ**, -яў. Густы цяжкапраходны лясны зараснік у балоцістых мясцовасцях трапічных і субтрапічных краін. *Непраходныя д.*

**ДЖУТ**, -у, *М* джу́це, *м.* Травяністая расліна сямейства мальвавых, што разводзіцца для тэкстыльнай прамысловасці, а таксама валакно гэтай тканіны. ‖ *прым.* **джу́тавы**, -ая, -ае.

**ДЖЫГІ́Т**, -а, *М* -гіце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Умелы спрытны наезнік. ‖ *прым.* **джыгі́цкі**, -ая, -ае.

**ДЖЫГІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак.* Займацца джыгітоўкай.

**ДЖЫГІТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* Разнастайныя складаныя практыкаванні на асядланым кані.

**ДЖЫН**[1], -у, *м.* Моцны алкагольны напой, які вырабляецца шляхам перагонкі пшанічнага спірту, настоенага на ядлоўцавых ягадах. *Адведалі па чарцы джыну.*

**ДЖЫН**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У арабскай міфалогіі: назва нябачнай для чалавека істоты, якая валодае свабодай волі і можа быць добрай або злой. ◊ **Выпусціць джына з бутэлькі** (кніжн.) — даць волю злым сілам.

**ДЖЫ́НСАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* джынсы. **2.** Пра тканіну: такая, з якой шыюць джынсы.

**ДЖЫ́НСЫ**, -аў. Штаны з жорсткай баваўнянай тканіны, звычайна прашытыя каляровымі ніткамі. *Мужчынскія, жаночыя д.* ‖ *прым.* **джы́нсавы**, -ая, -ае.

**ДЖЫП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Легкавы аўтамабіль павышанай праходнасці.

**ДЖЫ́У-ДЖЫ́ЦУ**, *нескл., н.* Японскае нацыянальнае баявое мастацтва, сістэма самаабароны без зброі.

**ДЖЭЙРА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Від газелі[1], пашыраны на пустынных і паўпустынных тэрыторыях Закаўказзя, Пярэдняй, Сярэдняй і Цэнтральнай Азіі. ‖ *прым.* **джэйра́навы**, -ая, -ае.

**ДЖЭМ**, -у, *м.* Варэнне з садавіны або ягад у выглядзе густога жэле. ‖ *прым.* **джэ́мавы**, -ая, -ае.

**ДЖЭ́МПЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вязаная кофта без каўняра, якая надзяваецца цераз галаву.

**ДЖЭНТЛЬМЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адукаваны і выхаваны мужчына, які адрозніваецца прыстойнасцю і ветлівасцю ў адносінах з іншымі, высакароднасцю маралі, далікатнасцю, элегантнасцю. ‖ *прым.* **джэнтльме́нскі**, -ая, -ае. ○ **Джэнтльменскае пагадненне** — міжнародны дагавор, заключаны звычайна ў вуснай форме.

**ДЖЭ́РСІ**, *нескл., н.* Шчыльная трыкатажная тканіна з шарсцяных, баваўняных, шаўковых ці сінтэтычных ніцей, а таксама адзенне з такога матэрыялу. *Баваўнянае, шарсцяное, шаўковае д.*

**ДЗВЕ** *гл.* два.

**ДЗВЕ́РЦЫ**, -аў. **1.** *гл.* дзверы. **2.** Створка, створкі, якімі закрываюць якую-н. адтуліну. *Пячныя д.*

**ДЗВЕ́РЫ**, дзвярэ́й, *Т* дзвяра́мі *і* дзвярыма. Праём у сцяне для ўваходу ў памяшканне, а таксама створ, якім закрываюць гэты праём. *Навесіць д. Дубовыя д. Зачыніць д. на ключ.* ○ **Царскія дзверы** — у праваслаўнай царкве: галоўныя дзверы ў іканастасе, якія вядуць у алтар. ◊ **Дзень адчыненых дзвярэй** — дзень вольнага доступу ў навучальныя ўстановы з мэтай азнаямлення з імі перад паступленнем на вучобу. **Пры зачыненых дзвярах** — без допуску пабочных асоб. **Стукацца ў дзверы** —

звяртацца да каго-н. з просьбай аб чым-н. ‖ *памянш.* **дзвéрцы**, -аў. ‖ *прым.* **дзвярны́**, -áя, -óе. *Д. праём. Дзвярная клямка.*

**ДЗВÉСЦЕ**, двухсóт, двумстáм, двумастáмі, (аб) двухстáх, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 200. ‖ *парадк.* **двухсóты**, -ая, -ае.

**ДЗВЫ́НКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Утвараць звінючыя гукі (пра шкло, метал, насякомых і пад.). *Недзе дзвынкала шкло. Над вухам дзвынкалі камары.* ‖ *аднакр.* **дзвы́нкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **дзвы́нканне**, -я, *н.*

**ДЗЕ**, *прысл.* **1.** *пыт.* У якім месцы. *Дзе вы працуеце?* **2.** *месца.* У якім месцы. *Няма дзе адпачыць.* **3.** *неазнач.* Тое, што і *дзенебудзь. Пашукай лепш, можа дзе згубіў. Ці няма дзе вольнага месца?* **4.** *адноснае.* Ужыв. як злучальнае слова, падпарадкоўвае даданыя сказы месца, азначальныя, дапаўняльныя, дзейнікавыя, уступальныя сказы. *Горад, дзе я жыў.* **5.** *у знач. часц.* Ужыв. для выражэння поўнай немагчымасці чаго-н., сумнення ў чым-н. *Адпачыў? — Дзе адпачыў! Столькі работы.* ◊ **Дзе наша не прападала** (разм.) — выказванне рашучасці ісці на рызыку.

**ДЗÉВЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мужаў брат. *Мой д. — справядлівы чалавек.*

**ДЗЕВЯНО́СТА**, -а, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 90. *Д. чалавек. Яму за д.* ‖ *парадк.* **дзевяно́сты**, -ая, -ае.

**ДЗЕВЯТНÁЦЦАЦЬ**, -і, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 19. ‖ *парадк.* **дзевятнáццаты**, -ая, -ае.

**ДЗЕВЯЦІ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. дзевяць, напр.: *дзевяцігадовы, дзевяціпольны, дзевяцібальны, дзевяціградусны, дзевяцігадзінны.*

**ДЗЕВЯЦІКЛÁСНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань дзявятага класа. ‖ *ж.* **дзевяціклáсніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДЗЕВЯЦІКРÁТНЫ**, -ая, -ае. Які паўтараецца дзевяць разоў, павялічаны ў дзевяць разоў. *У дзевяцікратным памеры.*

**ДЗÉВЯЦЬ**, -і, *Т* -ццю́, *ліч. кольк.* Лік, лічба і колькасць 9. ‖ *парадк.* **дзявя́ты**, -ая, -ае.

**ДЗЕВЯЦЬСО́Т**, дзевяцісóт, дзевяцістáм, дзевяццюстáмі, (аб) дзевяцістáх, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 900. ‖ *парадк.* **дзевяцісо́ты**, -ая, -ае.

**ДЗЕД**[1], -а, *М* дзéдзе, *мн.* дзяды́, дзядо́ў, *м.* **1.** Бацькаў або матчын бацька. **2.** Стары чалавек. *Сюды прыходзіў мудры д.* **3.** Муж (разм.). *Добра каша пры хлебе, добра баба пры дзедзе* (прыказка). ◊ **Дзед Мароз** — казачны стары з сівой барадой, які ўвасабляе мароз і навагоднія святы. **Следам за дзедам** — па прыкладзе старэйшых. ‖ *памянш.-ласк.* **дзядо́к**, -дкá, *мн.* -дкí, -дко́ў, *м.* (да 2 знач.; разм.). ‖ *ласк.* **дзяду́ля**, -і, *мн.* -і, -яў, *м.*, **дзяду́ня**, -і, *мн.* -і, -яў, *м. і* **дзяду́ся**, -і, *мн.* -і, -яў, *м.* ‖ *прым.* **дзéдаўскі**, -ая, -ае *і* **дзядо́ўскі**, -ая, -ае. *Дзедаўская спадчына. Дзядоўская паходка.*

**ДЗЕД**[2], -а, *М* дзéдзе, *мн.* дзяды́, дзядо́ў, *м.* (гіст.). Прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай лучыны.

**ДЗÉДАЎСКІ** *і* **ДЗЯДО́ЎСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дзед[1]. **2.** *перан.* Атрыманы ў спадчыну ад продкаў; старадаўні або ўстарэлы. *Дзедаўская тэхніка. Д. спосаб апрацоўкі зямлі.*

**ДЗÉДАЎШЧЫНА**, -ы, *ж.* (разм.). Спадчына пасля дзеда.

**ДЗЕДАЎШЧЫ́НА**, -ы, *ж.* У арміі: нераўнапраўныя і зневажальныя адносіны стараслужачых да маладых салдат, навабранцаў.

**ДЗÉДЗІЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). **1.** Спадчыннік дзедаўскага двара[1], маёнтка. **2.** Уладар маёнтка, атрыманага ў спадчыну ад продкаў.

**ДЗЕЕПРЫМÉТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У граматыцы: форма дзеяслова, якая сумяшчае катэгорыі дзеяслова (час, стан і трыванне) і катэгорыі прыметніка (род, склон). *Д. цяперашняга часу. Д. залежнага стану.* ‖ *прым.* **дзеепрымéтны**, -ая, -ае.

**ДЗЕЕПРЫСЛО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* У граматыцы: нязменная форма дзеяслова, якая спалучае ў сабе катэгорыі дзеяслова і прыслоўя. ‖ *прым.* **дзеепрысло́ўны**, -ая, -ае.

**ДЗÉЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* Драўляная, крыху звужаная к верху пасудзіна з прамых клёпак[1] для заквашвання цеста і пад. *Хапіў з дзежкі, аж не бачыць сцежкі* (з нар.). ‖ *памянш.* **дзéжачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **дзéжачны**, -ая, -ае *і* **дзéжкавы**, -ая, -ае.

**ДЗÉЙНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Заняткі, праца ў якой-н. галіне. *Гаспадарчая д. Педагагічная д. Навукова-даследчая д.* **2.** Сукупнасць дзеянняў, мерапрыемстваў якога-н. прадпрыемства, установы і пад. *Д. бібліятэкі. Д. школы па выхаванні моладзі.* **3.** Работа, функцыянаванне якіх-н. органаў арганізма або дзеянне сіл прыроды. *Д. сэрца. Д. вулкана.*

**ДЗÉЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У граматыцы: галоўны член двухсастаўнага сказа, які не залежыць ад іншых членаў сказа і абазначае прадмет, прымета якога выражаецца выказнікам. ‖ *прым.* **дзéйнікавы**, -ая, -ае.

**ДЗÉЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Рабіць што-н., займацца чым-н. *Д. рашуча.* **2.** *чым.* Кіраваць, валодаць чым-н. *Спартсмен удала дзейнічаў ракеткай. Пасля ранення нага не дзейнічае.* **3.** *на каго-што і без дап.* Рабіць уплыў, уздзеянне, выклікаць якую-н. рэакцыю ў адказ. *Лякарства на яго станоўча дзейнічае. Сонца згубна дзейнічае на жэньшэнь.* **4.** Быць спраўным (пра апараты, механізмы). *Механізм дзейнічае безадказна.* **5.** Мець сілу, абавязваць рабіць пэўным чынам. *Тут дзейнічаў даўні звычай.* ◊ **Дзейнічаць на нервы** *каму* (разм.) — раздражняць каго-н. ‖ *зак.* **падзéйнічаць**, -аю, -аеш, -ае (да 3 і 5 знач.).

**ДЗÉЙНЫ**, -ая, -ае. Актыўны, жвавы, энергічны. *Дзейная натура.*

**ДЗÉЙСНЫ**, -ая, -ае. Здольны ўздзейнічаць, эфектыўны. *Д. сродак. Дзейсныя меры.* ‖ *наз.* **дзéйснасць**, -і, *ж.*

**ДЗЕКАБРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). Удзельнік рускага дваранскага рэвалюцыйнага руху супраць царскай улады і прыгоннага права, які выліўся ўзброеным паўстаннем 14 снежня 1825 г. ‖ *прым.* **дзекабры́сцкі**, -ая, -ае.

**ДЗЕКАБРЫ́СТКА**, -і, *ДМ* -стцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Жонка дзекабрыста.

**ДЗÉКАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* дзекаць. **2.** Уласцівае беларускай мове пазіцыйнае чарганне цвёрдага зубнога *д* з мяккай афрыкатай *дз: горад — у горадзе, іду — ідзі.*

**ДЗÉКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Вымаўляць афрыкату *дз* на месцы мяккага *д.* ‖ *наз.* **дзéканне**, -я, *н.*

**ДЗЕЛАВІ́ТЫ**, -ая, -ае. Энергічны, умелы, прадпрымальны ў рабоце. *Д. малады інжынер.* ‖ *наз.* **дзелавíтасць**, -і, *ж.*

**ДЗЕЛАВЫ́**, -áя, -óе. **1.** Які адносіцца да грамадскай, службовай дзейнасці. *Дзелавая размова. Дзелавыя сувязі. Дзелавое пісьмо.* **2.** Які ведае справу, умела кіруе і клапоціцца аб рабоце. *Дзелавыя людзі. Д. кіраўнік.* **3.** Прыдатны для апрацоўкі ў якасці матэрыялу (спец.). *Дзелавая драўніна.* **4.** Звязаны са справаводствам. *Д. стыль.*

**ДЗÉЛІВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Лік або велічыня, якія падвяргаюцца дзяленню, дзялімае.

**ДЗЕЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Вынік дзялення аднаго ліку на другі. **2.** Частка, доля, выдзеленая каму-н. для карыстання, апрацоўкі і пад. (разм.). *Ён узяў сваю д.*

**ДЗÉЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Лік або велічыня, на якую дзеліцца дзеліва.

**ДЗÉЛЯ**, *прыназ. з Р.* **1.** *каго-чаго.* Выражае мэтавыя адносіны, ужыв. пры абазначэнні асобы ці прадмета, у інтарэсах якіх здзяйсняецца што-н. *Д. агульнай справы. Я зраблю гэта д. вас.* **2.** *чаго.* Выражае мэтавыя адносіны, ужыв. пры абазначэнні мэты дзеяння. *Д. адпачынку. Д. кавалка хлеба.*

**ДЗЕ-НÉБУДЗЬ**, *прысл.* У якім-н., дакладна невядомым месцы. *Д. сустрэнемся.*

**ДЗЕ-НІДЗÉ**, *прысл.* Сям-там, у асобных месцах. *Д. ў лясах можна сустрэць бабра.*

**ДЗЕНЬ**, дня, *мн.* дні, дзён, *м.* **1.** Частка сутак ад усходу да заходу сонца, ад раніцы да вечара. *Ясны д. Дасць Бог д., дасць і спажытак* (прыказка). *І дзень і ноч.* **2.** Тое, што і *суткі. Водпуск на пяць дзён.* **3.** Прамежак часу ў межах сутак, заняты чым-н. *Працоўны д. Светлавы д.* **4.** *чаго.* Вызначаны тэрмін, дата, прысвечаная якой-н. падзеі. *Д. Перамогі. Д. нараджэння.* **5.** *мн.* Пара, перыяд. *Дні юнацтва.* ○ **Палярны дзень** — за Палярным кругам: частка года, калі сонца не заходзіць за гарызонт. **Посны дзень** — дзень, у які згодна з царкоўным звычаем нельга есці скаромнае. **Разгрузачны дзень** — харчаванне аднатыпнымі прадуктамі на працягу аднаго дня з мэтай аздараўлення або пахудзення. **Санітарны дзень** — дзень, які прызначаецца для санітарнага агляду службовага памяшкання. **Рабочы (працоўны) дзень** —

пэўная колькасць часу, адведзеная для работы, службы. ◊ **Добры дзень!** — прывітальны зварот днём пры сустрэчы. **Дзень у дзень; дзень пры дні** — штодзень, кожны дзень. **З дня на дзень** — у адзін з бліжэйшых дзён. *Чакаем іх з дня на дзень.* **Наводзіць цень на ясны дзень** — наўмысна ўносіць няяснасць у якую-н. справу; блытаць каго-н. **Учарашні дзень** — былое, мінулае. **Чорны дзень** — цяжкая, змрочная часіна. ‖ *памянш.-ласк.* **дзянёк**, -нька́, *мн.* -нькі́, -нькоў, *м.* (да 1—3 знач.). ‖ *прым.* **дзённы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ДЗЕРАВЯ́КА**, -і, *ДМ* -вя́цы, *мн.* -і, -вя́к, *ж.* (разм.). Кавалак дрэва. *На беразе ракі дагнівалі пачарнелыя дзеравякі.*

**ДЗЕРАВЯНЕ́ЦЬ**, -не́ю, -не́еш, -не́е; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Набываць цвёрдасць, уласцівую дрэву. *Сцябло расце і дзеравянее.* **2.** Страчваць адчувальнасць, дранцвець. *Ногі дзеравянеюць ад холаду.* ‖ *зак.* **адзеравяне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е, **задзеравяне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е *і* **здзеравяне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**ДЗЕРАВЯ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). **1.** Кавалак дрэва, драўляны брусок. **2.** Штучная драўляная нага. *З вайны ў яго замест нагі д.* **3.** звычайна *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Скінуў дзеравяшкі пад лаўку.*

**ДЗЕРАЗА́**, -ы́, *ж.* Травяністая споравая расліна сямейства дзеразовых з паўзучым сцяблом. ‖ *прым.* **дзеразо́вы**, -ая, -ае. *Д. вянок. Сямейства дзеразовых* (наз.).

**ДЗЕ́РЦІ**, дзяру́, дзярэ́ш, дзярэ́; дзяро́м, дзерацё, дзяру́ць; дзёр, дзе́рла; дзяры́; дзёрты; *незак., каго-што.* Тое, што і *драць.*

**ДЗЕ́СЬЦІ**, *прысл.* У нейкім, дакладна не вызначаным месцы. *Д. я сустракаў гэтага чалавека. Ён служыць д. на поўначы.*

**ДЗЕСЯТКО́ВЫ**, -ая, -ае. Заснаваны на лічэнні дзясяткамі. *Дзесятковая сістэма мер і вагі.* ○ **Дзесятковая сістэма злічэння** — пазіцыйная сістэма злічэння з асновай 10 (для запісу ліку выкарыстоўваюцца 10 лічбаў — 0, 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9).

**ДЗЕСЯЦІ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. дзесяць, напр.: *дзесяцітонны, дзесяціствольны, дзесяцігадзінны, дзесяцікласнік.*

**ДЗЕСЯЦІБО́РАЦ**, -рца, *мн.* -рцы, -рцаў, *м.* Спартсмен, удзельнік дзесяціборства.

**ДЗЕСЯЦІБО́РСТВА**, -а, *н.* Спартыўнае спаборніцтва па лёгкай атлетыцы, якое праводзіцца па дзесяці відах спорту.

**ДЗЕСЯЦІГО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Тэрмін у дзесяць гадоў. **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, што адбылася дзесяць гадоў таму назад. *Д. інстытута.* ‖ *прым.* **дзесяцігадо́вы**, -ая, -ае.

**ДЗЕСЯЦІГО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* (разм.). Поўная сярэдняя школа з дзесяццю гадамі навучання. *Скончыць дзесяцігодку.*

**ДЗЕСЯЦІДЗЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Прамежак часу ў дзесяць дзён; дэкада. ‖ *прым.* **дзесяцідзённы**, -ая, -ае.

**ДЗЕСЯЦІКЛА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань дзясятага класа. ‖ *ж.* **дзесяцікла́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДЗЕСЯЦІКРА́ТНЫ**, -ая, -ае. Павялічаны ў дзесяць разоў; які адбываўся дзесяць разоў. *У дзесяцікратным памеры. Д. чэмпіён.*

**ДЗЕСЯЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* (гіст.). **1.** Старая руская мера зямельнай плошчы, роўная 1,09 гектара. **2.** Падатак на карысць царквы ў памеры адной дзясятай часткі даходу. ‖ *прым.* **дзесяці́нны**, -ая, -ае. *Д. надзел зямлі.*

**ДЗЕСЯЦІРУБЛЁЎКА**, -і, *ДМ* -лёўцы, *мн.* -і, -лёвак, *ж.* (разм.). Грашовы знак вартасцю ў дзесяць рублёў.

**ДЗЕ́СЯЦЬ**, -і́, -ццю́, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 10. *Д. чалавек. Д. гадоў.* ◊ **Ні ў пяць ні ў дзесяць** (разм., неадабр.) — ні туды ні сюды; ні так ні гэтак. ‖ *парадк.* **дзяся́ты**, -ая, -ае. *Дзясятыя гады мінулага стагоддзя. Гэта справа дзясятая* (перан.: няважная, другарадная; разм.). ◊ **Пятае праз дзясятае** (разм., жарт.) — непаслядоўна, пераскокваючы з аднаго на другое (расказваць, пераказваць).

**ДЗЕТАЗАБО́ЙСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Забойства дзіцяці.

**ДЗЕТАЗАБО́ЙЦА**, -ы, *ДМ* -цу, *Т* -ам, *м.; ДМ* -цы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -аў. Забойца дзіцяці.

**ДЗЕТАРАДЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* Стварэнне патомства, нараджэнне дзяцей.

**ДЗЕТВАРА́**, -ы́, *ж., зб.* (разм.). Малыя дзеці. *Двор поўніўся галасамі дзетвары.*

**ДЗЕТДО́М**, -а, *мн.* -дамы́, -дамо́ў, *м.* (разм.). Дзіцячы дом, выхаваўчая ўстанова для дзяцей, якія засталіся без бацькоўскай апекі. ‖ *прым.* **дзетдо́маўскі**, -ая, -ае. *Дзетдомаўскае дзіця.*

**ДЗЕТДО́МАВЕЦ**, -маўца, *мн.* -маўцы, -маўцаў, *м.* (разм.). Выхаванец дзіцячага дома. ‖ *ж.* **дзетдо́маўка**, -і, *ДМ* -маўцы, *мн.* -і, -мавак.

**ДЗЕТСА́Д**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Дзіцячы сад, выхаваўчая ўстанова для дзяцей дашкольнага ўзросту. ‖ *прым.* **дзетса́даўскі**, -ая, -ае.

**ДЗЕ́ЎКА**, -і, *ДМ* дзе́ўцы, *мн.* -і, дзе́вак, *ж.* (разм.). Паўналетняя незамужняя жанчына. *Дзеўкі спявалі купальскія песні.*

**ДЗЕЎЧАНЯ́** *і* **ДЗЕЎЧАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Маленькая дзяўчына.

**ДЗЕ́ЦІ**, дзяце́й, дзе́цям, дзе́цьмі *і* дзяцьмі́, (аб) дзе́цях. **1.** *мн.* да дзіця. **2.** Маладое пакаленне, бліжэйшыя патомкі. *Бацькі і дзеці. Гушча дзяцей не разганяе* (прыказка). ‖ *памянш.-ласк.* **дзе́ткі**, -так *і* **дзе́тачкі**, -чак. ‖ *прым.* **дзіця́чы**, -ая, -ае. *Д. тэатр. Д. дом.*

**ДЗЕ́ЦЦА**, дзе́нуся, дзе́нешся, дзе́нецца; дзе́нься; *зак.* (разм.). **1.** Знікнуць, прапасці. *Куды ён дзеўся? Нікуды ён не дзенецца.* **2.** Знайсці сабе месца, прытулак. *У незнаёмым горадзе не ведаеш, куды д. нанач. Куды ж мне д.? Кудысьці кнігі з паліцы дзяваюцца.* ‖ *незак.* **дзява́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ДЗЕЦЬ**, дзе́ну, дзе́неш, дзе́не; дзень; *зак.* (разм.). **1.** Палажыць куды-н. так, што цяжка знайсці. *Куды ты дзеў ключ? Дзе ж я дзену гэтую кнігу?* **2.** Знайсці для каго-н. месца, прытулак. *Кацянят трэба некуды д.* ◊ **(Не ведаць) куды вочы дзець** (разм.) — пра адчуванне сораму. **(Не ведаць) куды рукі дзець** (разм.) — пра адчуванне няёмкасці, разгубленасці. ‖ *незак.* **дзява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ДЗЕ́ЮЧЫ**, -ая, -ае. Які дзейнічае, функцыянуе. *Дзеючыя асобы ў п'есе. Д. вулкан.*

**ДЗЕ́Я**, -і, *мн.* -і, дзей, *ж.* **1.** Дзейнасць, справа. *Там добрая д., дзе адзін арэ, а другі сее* (з нар.). **2.** Падзея, пра якую ідзе гаворка. *Д. адбываецца ў часы вайны.* **3.** Закончаная частка драматычнага твора або тэатральнай пастаноўкі. *Камедыя ў трох дзеях.*

**ДЗЕЯЗДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны да дзейнасці. *Д. арганізм.* **2.** Які мае права на ўчыненне дзеянняў юрыдычнага характару і які нясе адказнасць за свае ўчынкі (спец.). *Д. грамадзянін.* ‖ *наз.* **дзеяздо́льнасць**, -і, *ж.*

**ДЗЕ́ЯННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Дзейнасць. *План дзеяння. Баявыя дзеянні.* **2.** звычайна *мн.* Учынкі, паводзіны. *Супрацьзаконныя дзеянні. Самавольныя дзеянні.* **3.** Работа, функцыянаванне. *Машына ў дзеянні.* **4.** Падзеі, пра якія ідзе гаворка. *Д. адбываецца ў 15 стагоддзі.* **5.** Асноўны від матэматычнага вылічэння. *Чатыры дзеянні арыфметыкі.*

**ДЗЕЯСЛО́Ў**, -ло́ва, *мн.* -ло́вы, -ло́ваў, *м.* У граматыцы: часціна мовы, што абазначае дзеянне або стан прадмета і змяняецца па часах, асобах і ліках. *Аднакратны д. Дапаможны д. Неазначальная форма дзеяслова. Безасабовыя дзеясловы. Рознаспрагальны д.* ‖ *прым.* **дзеясло́ўны**, -ая, -ае.

**ДЗЕ́ЯЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., дзе́ецца; *незак.* (разм.). Рабіцца, адбывацца. *Сённяшні дзень — гэта водгулле ўсяго, што дзеецца ў свеце.*

**ДЗЕ́ЯЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які праявіў сябе ў якой-н. грамадскай дзейнасці. *Дзяржаўны д. Дзеячы культуры. Заслужаны д. навукі* (ганаровае званне). ‖ *ж.* **дзяя́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ДЗЁГАЦЬ**, -гцю, *м.* Цёмны смалісты вадкі прадукт, які атрымліваецца шляхам сухой перагонкі дрэва, торфу або каменнага вугалю. *Змазаць боты дзёгцем.* ◊ **Лыжка дзёгцю ў бочцы мёду** — пра што-н. малое, здольнае атруціць, сапсаваць вялікае. ‖ *прым.* **дзёгцевы**, -ая, -ае *і* **дзягця́рны**, -ая, -ае.

**ДЗЁННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Запісы аб бягучых справах, падзеях, у якіх удзельнічаў ці быў іх сведкам сам аўтар. *Д. экспедыцыі.* **2.** Кніга або сшытак з такімі запісамі. **3.** Спецыяльны сшытак для запісу зададзеных урокаў і адзнак аб паспяховас-

ці і паводзінах вучняў. ‖ *прым.* **дзённікавы**, -ая, -ае.

**ДЗЁННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дзень. **2.** Які выпрацоўваецца на працягу аднаго дня; які атрымліваецца за адзін дзень. *Дзённая выпрацоўка. Дзённая зарплата.*

**ДЗЁРАН**, -рну, *м.* Верхні слой глебы, густа пераплецены карэннем раслін, а таксама выразаныя пласты з гэтага слоя, якімі ўмацоўваюць адхоны, абкладаюць клумбы і інш. *Клумбы абкладзены зялёным дзёрнам.* ‖ *прым.* **дзярно́вы**, -ая, -ае.

**ДЗЁРЗКІ**, -ая, -ае. Непачцівы, грубы, нахабна-задзірлівы. *Д. адказ. Дзёрзка* (прысл.) *паводзіць сябе.* ‖ *наз.* **дзёрзкасць**, -і, *ж.*

**ДЗЁРТЫ**, -ая, -ае. Здробнены на тарцы. *Аладкі з дзёртай бульбы.*

**ДЗЁРУ**, *у знач. вык.* (разм.). Тое, што і *драла. Яму што, схапіў ды д.*

**ДЗІ́ВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Тое, што выклікае здзіўленне, цуд. *Сапраўднае д. Што за д.? Вось гэта дык д.!* ◊ **Дзіва дзіўнае** (разм.) — вялікае дзіва. **Дзіву давацца** (разм.) — моцна здзіўляцца. **На дзіва** (разм.) — надта добра (удацца, выйсці, атрымацца).

**ДЗІВА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Чалавек з незвычайнымі схільнасцямі, звычкамі, поглядамі; арыгінал. *Вунь чаго натварыў гэты д.* ‖ *ж.* **дзіва́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ДЗІВАКАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). Дзівацкі, з дзівацтвамі (пра чалавека). *Д. дзед.* ‖ *наз.* **дзівакава́тасць**, -і, *ж.*

**ДЗІВАСІ́Л**, -у, *м.* Травяністая шматгадовая расліна сямейства складанакветных з вялікім прадаўгаватым лісцем і жоўтымі кветкамі, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне. ‖ *прым.* **дзівасі́лавы**, -ая, -ае.

**ДЗІВА́ЦКІ**, -ая, -ае. Дзіўны, незвычайны, арыгінальны. *Д. ўчынак.*

**ДЗІВА́ЦТВА**, -а, *н.* **1.** Незвычайнасць у схільнасцях, звычках, паводзінах. **2.** *мн.* -ы, -аў. Дзівацкі ўчынак; капрыз.

**ДЗІВІ́ЦЦА**, дзіўлю́ся, дзі́вішся, дзі́віцца; *незак.* **1.** *з каго-чаго.* Прыходзіць у здзіўленне. *Лесаруб дзівіўся з сына, як той карчуе пні. Дзіўлюся з вашай настойлівасці і ўмельства.* **2.** *кім-чым, на каго-што.* Захапляцца. *Ён дзівіўся чысцінёй вуліц і парадкам. Кожную ночку на зорку дзіўлюся.*

**ДЗІВІ́ЦЬ**, дзіўлю́, дзі́віш, дзі́віць; *незак., каго-што.* Выклікаць здзіўленне, рабіць моцнае ўражанне. *Хірурга дзівіла цярплівасць раненага. Яна прыгажосцю дзівіла.*

**ДЗІВО́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Незвычайны, казачна-дзіўны. *На вокнах дзівосныя ўзоры пакінуў мароз.* **2.** Цудоўны, непараўнальны па харастве. *Дрэвы стаялі ў сваім дзівосным жоўта-барвовым убранні. Дзівосна* (прысл.) *гучала жалейка.* **3.** Вельмі добры, выдатнай якасці. *Ад дзівоснай стрэльбы вачэй не адарваць.* ‖ *наз.* **дзіво́снасць**, -і, *ж.*

**ДЗІ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, дзід, *ж.* **1.** Старадаўняя колючая зброя ў выглядзе доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам; піка. **2.** *перан.* Пра што-н. высокае, вастраверхае. *Далёка за полем узвышалася ў неба чорная дзіда касцёла.*

**ДЗІК**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Дзікі кабан; вепр. *Увосень дзікі ласуюцца жалудамі.* ‖ *прым.* **дзічы́ны**, -ая, -ае.

**ДЗІКАБРА́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Жывёліна атрада грызуноў, спіна і бакі ў якой пакрыты доўгімі іголкамі. ‖ *прым.* **дзікабра́завы**, -ая, -ае. *Дзікабразавае шчаціннe.*

**ДЗІКАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Трохі дзікі (у 2 і 5 знач.). *Характар у старога быў пануры, д. Дзікавата* (прысл.) *паводзіць сябе.* ‖ *наз.* **дзікава́тасць**, -і, *ж.*

**ДЗІКАРО́СЛЫ**, -ая, -ае. Які расце ў дзікім стане (пра расліны). *Дзікарослыя лекавыя травы.*

**ДЗІ́КІ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца на першабытнай стадыі развіцця (пра людзей), не культываваны (пра расліны), не прыручаны (пра жывёл). *Дзікія плямёны. Дзікая яблыня. Дзікая качка.* **2.** Незаселены, неабжыты. *Д. кут.* **3.** Неўтаймаваны, шалёны. *У душы яго кіпеў д. гнеў.* **4.** Люты, зверскі, які пераходзіць межы нармальнага. *Д. крык. Дзікая расправа. Дзікае забойства.* **5.** *перан.* Нелюдзімы, які дзічыцца, пазбягае людзей. **6.** Не звязаны ні з якімі арганізацыямі, які дзейнічае самастойна (разм.). *Дзікая арцель. Д. пляж.* ○ **Дзікае мяса** (разм.) — нарасць на ранах, якія доўга не зажываюць. ‖ *наз.* **дзі́касць**, -і, *ж.*

**ДЗІКЛІ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які дзічыцца, саромеецца людзей, асабліва чужых. *Дзіклівае дзіця.* **2.** Недаверлівы, палахлівы (пра жывёл). *Д. кот.* ‖ *наз.* **дзіклі́васць**, -і, *ж.*

**ДЗІКУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Чалавек з племені, якое знаходзіцца на ступені першабытнай культуры; нецывілізаваны чалавек. **2.** Нелюдзімы, дзікаваты чалавек, які пазбягае людзей (разм.). ‖ *ж.* **дзіку́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **дзіку́нскі**, -ая, -ае.

**ДЗІРА́**, -ы́, *мн.* дзі́ры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) дзіры́, дзір, *ж.* **1.** Вялікая дзірка ў вопратцы або адтуліна ў чым-н. *Залатаць дзіры на локцях. Залажыць дзіры цэглай.* **2.** Далёкае ад культурных цэнтраў месца (разм.). *Жыве ён у такой дзіры, што свет не бачыў.* ○ **Чорная дзіра** (спец.) — вобласць у касмічнай прасторы з надзвычай магутным гравітацыйным прыцягненнем.

**ДЗІРА́ВЫ**, -ая, -ае. Прадраны, з дзіркамі. *Дзіравая кішэня. Дзіравая лодка.* ◊ **Дзіравая барада** (разм., жарт.) — пра таго, хто абліваецца стравай у час яды. **Дзіравая галава** (жарт.) — пра чалавека з дрэннай памяццю.

**ДЗІРВА́Н**, -у́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Нявораная зямля, якая зарасла густой травой. *Плугамі ўзнімалі некранутыя дзірваны.* **2.** Тое, што і *дзёран.* ‖ *прым.* **дзірва́нны**, -ая, -ае.

**ДЗІРВАНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не́е; *незак.* Зарастаць травой, пакрывацца дзёрнам, дзірваном (у 2 знач.). *Дзірванее пакінутая зямля.* ‖ *зак.* **задзірване́ць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не́е.

**ДЗІРВАНІ́СТЫ**, -ая, -ае. Густа парослы каранямі травяністых раслін. *Дзірваністая зямля.* ‖ *наз.* **дзірвані́стасць**, -і, *ж.*

**ДЗІ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Невялікая адтуліна, шчыліна, праём у чым-н. *Зацыраваць дзіркі ў шкарпэтках. Пракруціць дзірку ў дошцы.* **2.** Пра глухі, далёкі населены пункт (разм.). **3.** *мн., перан.* Тое, што патрабуе выдаткаў. *У гаспадарцы многа дзірак.* ◊ **(Патрэбна) як у мосце дзірка** (разм., іран.) — пра што-н. непатрэбнае. **Дзірка ад абаранка** (разм.) — нічога, пустое месца. ‖ *памянш.* **дзі́рачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ДЗІРКАКО́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Канцылярская прылада для прабівання круглых дзірак у паперы.

**ДЗІ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выклікае здзіўленне; нябачаны. *Малому прысніўся д. сон. Дзіўна* (прысл.) *паводзіць сябе.* **2.** Цудоўны, чароўны. *Чуецца дзіўная музыка. Дзіўная купальская ноч.* ‖ *наз.* **дзі́ўнасць**, -і, *ж.*

**ДЗІЦЯ́** *і* **ДЗІЦЁ**, дзіця́ці, *Т* дзіцём *і* дзі́цем, *мн.* дзе́ці, дзяце́й, *н.* **1.** Малы хлопчык або дзяўчынка. *Дзеці дашкольнага ўзросту. Д. не заплача — матка не здагадаецца* (прыказка). *Яшчэ зусім д.* **2.** *перан., чаго.* Пра чалавека, які набыў яркія рысы свайго асяроддзя і часу. *Д. свайго веку. Д. вуліцы. Д. прыроды.* ‖ *ласк.* **дзіця́тка**, -а, *мн.* -кі, -так, *н.* (да 1 знач.).

**ДЗІЦЯНЯ́** *і* **ДЗІЦЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Тое, што і *дзіця* (*дзіцё*).

**ДЗІЦЯ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дзеці. **2.** *перан.* Неўласцівы даросламу, нясталы. *Вырас, а розум д. Дзіцячыя разважанні.*

**ДЗІ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Дзікае, непрышчэпленае пладовае дрэва. **2.** Плод такога дрэва. *Дзічкі смачныя тады, калі ўлежацца.* ‖ *прым.* **дзі́чкавы**, -ая, -ае.

**ДЗІЧЫНА**, -ы, *ж.* **1.** *зб.* Дзікія звяры і птушкі як прадмет палявання. *Лясная д.* **2.** Мяса дзікіх жывёл і птушак. *Насмажыць дзічыны.*

**ДЗІЧЫ́НЫ** *гл.* дзік.

**ДЗІЧЫ́ХА**, -і, *ДМ* -чы́се, *мн.* -і, -чы́х, *ж.* (разм.). Самка дзікага кабана, дзіка.

**ДЗІЧЫ́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца; *незак., каго-чаго і без дап.* (разм.). Саромецца, ухіляцца ад сустрэч і размоў, асабліва з чужымі ці малазнаёмымі людзьмі. *Д. людзей.*

**ДЗІЧЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* **1.** Станавіцца дзікім, перараджацца. *Дрэвы дзічэюць. Без нагляду лес дзічэў.* **2.** *перан.* Станавіцца нелюдзімым, дзіклівым. *Д. у адзіноце.* ‖ *зак.* **адзічэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е *і* **здзічэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е. ‖ *наз.* **дзічэ́нне**, -я, *н.*

**ДЗОТ**, -а, *М* дзо́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Умацаваны абаронны агнявы пункт у выглядзе зямлянкі. *Па дзотах праціўніка несціхана садзілі гарматы.*

**ДЗЫЛІ́НКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Званіць, ствараць звінячы гук чым-н. металічным. *Д. ключамі.* ‖ *аднакр.*

**дзылінкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (разм.). ‖ *наз.* **дзылінканне**, -я, *н.*

**ДЗЫН-ДЗЫН**, *выкл. гукаперайм.* Ужыв. для абазначэння гукаў званочкаў, бомаў і пад. *А званочак пад дугою д.*

**ДЗЬМУХАВЕ́Ц**, -хаўца́ *і* (зб.) -хаўцу́, *мн.* -хаўцы́, -хаўцо́ў, *м.* (разм.). Травяністая расліна сямейства складанакветных з жоўтымі кветкамі, сцяблом з млечным сокам і насеннем на пушыстых валасінках. ‖ *прым.* **дзьмухаўцо́вы**, -ая, -ае.

**ДЗЬМУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Перарывіста, з перапынкамі дзьмуць. *Д. на шклянку з гарачым чаем.* ‖ *аднакр.* **дзьму́хнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. *Д. на свечку.* ‖ *наз.* **дзьму́ханне**, -я, *н.*

**ДЗЬМУ́ЦЦА**, -му́ся, -ме́шся, -ме́цца; -мёмся, -мяце́ся, -му́цца; -мі́ся; *незак., на каго-што і без дап.* (разм.). Сердаваць, крыўдзіцца, выказваць сваім выглядам незадаволенасць. *Цэлы тыдзень дзьмецца на старшыню.*

**ДЗЬМУЦЬ**, дзьму, дзьмеш, дзьме; -мём, -мяце́, -муць; -мі; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Веяць, гнаць паветра. *Дзьмуў лёгкі ветрык.* **2.** З сілай выпускаць з рота струмень паветра. *Д. на агонь. У дудку дзьме хлапчук.* ◊ **Куды вецер дзьме** (разм., неадабр.) — не мець сваёй думкі, прыстасоўвацца да існуючых меркаванняў.

**ДЗЮ́БА**, -ы, *мн.* -ы, дзюб *і* -аў, *ж.* У птушак: рагавое ўтварэнне з дзвюх падоўжаных бяззубых сківіц. *Арліная д.* ◊ **З камарыную дзюбу** (разм.) — пра што-н. малое, мізэрнае. ‖ *памянш.* **дзю́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.*

**ДЗЮБАНУ́ЦЬ** *гл.* дзюбнуць.

**ДЗЮБА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** З доўгай дзюбай. *Д. бусел.* **2.** Падобны на дзюбу. *Прамову гаварыў чалавек з дзюбатым носам.*

**ДЗЮ́БАЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -аецца; *незак.* **1.** Пра птушак: мець звычку дзюбаць каго-н. *Гусі дзюбаюцца.* **2.** Біць дзюбай адзін аднаго. *Пеўні дзюбаюцца на сметніку.*

**ДЗЮ́БАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што і без дап.* (разм.). **1.** Дзяўбці (у 1 і 2 знач.; пра птушак). **2.** Ударацць чым-н. вострым або ўдарацца аб што-н., пакідаючы след. *Д. лёд. Кулі дзюбаюць жалеза.* ◊ **Дзюбаць носам** (разм.) — драмаць, то апускаючы, то ўзнімаючы галаву. ‖ *аднакр.* **дзю́бнуць**, -ну, -неш, -не; -ні *і* **дзюбану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́, -нём, -няце́, -ну́ць, -ні́. ‖ *наз.* **дзю́банне**, -я, *н.*

**ДЗЮ́БКА**, -і, *мн.* -і, -ак, *ж.* **1.** *гл.* дзюба. **2.** Тонкі востры канец чаго-н. *Д. нажа.*

**ДЗЮ́БНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні *і* **ДЗЮБАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́, -ні́; *зак.* **1.** *гл.* дзюбаць. **2.** Выпіць спіртнога (разм.). *Добра дзюбнулі на вяселлі.*

**ДЗЮДАІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца дзюдо. ‖ *ж.* **дзюдаі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дзюдаі́сцкі**, -ая, -ае.

**ДЗЮДО́**, *нескл., н.* Японская барацьба вольнага стылю, якая ўзнікла на аснове адбору і мадэрнізацыі прыёмаў джыуджыцу.

**ДЗЮ́НЫ**, дзюн, *адз.* дзю́на, -ы, *ж.* Узбярэжныя пясчаныя наносы, якія перамяшчаюцца ветрам. ‖ *прым.* **дзю́нны**, -ая, -ае.

**ДЗЮРА́ЛЬ**, -ю, *м.* Тое, што і *дзюралюміній.* ‖ *прым.* **дзюра́левы**, -ая, -ае.

**ДЗЮРАЛЮМІ́НІЙ**, -ю, *м.* Лёгкі трывалы сплаў алюмінію і медзі з прымессю іншых элементаў. ‖ *прым.* **дзюралюмі́ніевы**, -ая, -ае.

**ДЗЮРЧА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -чыць; *незак.* (разм.). Цурчаць, ствараць булькатлівыя гукі. *Ручаёк дзюрчаў па каменьчыках.*

**ДЗЮШЭ́С**, -у, *м.* Гатунак дэсертных груш з сакавітай салодкай мякаццю.

**ДЗЯБЁЛЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Дужага целаскладу; поўны. *Д. мужчына.* **2.** Тоўсты, грубы, шчыльны (пра тканіну). *Дзябёлае сукно.* ‖ *наз.* **дзябёласць**, -і, *ж.*

**ДЗЯВА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (разм.). **1.** *незак.; гл.* дзецца. **2.** *зак.* (толькі *прош.*). Знікнуць, прапасці невядома куды. *Куды дзяваўся мой партфель?*

**ДЗЯВА́ЦЬ** *гл.* дзець.

**ДЗЯВО́ЦКІ**, -ая, -ае. Тое, што і *дзявочы. Д. гонар.*

**ДЗЯВО́ЦТВА**, -а, *н.* Перыяд жыцця дарослай дзяўчыны да шлюбу; дзявочыя гады. *У дзявоцтве Сяргеева.*

**ДЗЯВО́ЧЫ**, -ая, -ае. Які належыць дзяўчыне або ўласцівы дзяўчыне. *Дзявочая сукенка. Дзявочая прыгажосць.*

**ДЗЯВЯ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Лічба 9. **2.** Група з дзевяці чалавек або дзевяці аднародных прадметаў. *Дзявяткамі плылі самалёты.* **3.** Назва чаго-н., абазначанага лічбай 9 (разм.). *Прыехаў на дзявятцы* (на трамваі, аўтобусе, тралейбусе пад №9). *Мяч трапіў у дзявятку* (верхні вугал футбольных варот). **4.** Школьная адзнака. **5.** Ігральная карта з дзевяццю ачкамі.

**ДЗЯВЯ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дзевяць. *Стрэлка падбіралася да дзявятай гадзіны.* **2.** Які атрымліваецца пры дзяленні на дзевяць. *Дзявятая частка.* **3.** *у знач. наз.* **дзявя́тая**, -ай, *ж.* Дзявятая частка чаго-н. *Адна дзявятая.*

**ДЗЯВЯ́ЦЕРА**, дзевяцяры́х, дзевяцяры́м, дзевяцяры́мі, *ліч. зб.* Дзевяць. Ужыв.: а) з назоўнікамі мужчынскага або агульнага роду, якія абазначаюць асобу. *Д. салдат. Засталося д. сірот;* б) з асабовымі займеннікамі ў мн. л. *Нас было д.;* в) з назоўнікамі мн. л., якія абазначаюць маладых істот. *Д. дзяцей. Д. парасят;* г) з множналікавымі назоўнікамі. *Д. калёс. Д. сутак;* д) з некаторымі назоўнікамі, якія абазначаюць парныя прадметы. *Д. туфель. Д. шкарпэтак;* е) без назоўнікаў, калі абазначае асоб мужчынскага і жаночага полу. *Сустрэць дзевяцярых. Яда на дзевяцярых.*

**ДЗЯ́ГА**, -і, *ДМ* дзя́зе, *мн.* -і, дзяг, *ж.* Рэмень, папруга. *Падцягнуць дзягу.* ‖ *памянш.* **дзя́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.*

**ДЗЯ́ГІЛЬ**, -ю, *м.* Высокая травяністая меданосная расліна сямейства парасонавых з зеленавата-белымі кветкамі, выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**ДЗЯГЦЯ́Р**, дзегцяра́, *мн.* дзегцяры́, дзегцяро́ў, *м.* Той, хто гоніць або прадае дзёгаць. *Д. заўсёды пракураны дымам і дзёгцем.* ‖ *ж.* **дзягця́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **дзягця́рскі**, -ая, -ае.

**ДЗЯГЦЯ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** *гл.* дзягцяр. **2.** Пасудзіна для дзёгцю.

**ДЗЯГЦЯ́РНЫ** *гл.* дзёгаць.

**ДЗЯГЦЯ́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* Прадпрыемства, якое выпрацоўвае дзёгаць. *Пабудавалі новую дзягцярню.*

**ДЗЯГЦЯ́РСТВА**, -а, *н.* Выганка дзёгцю. *Займацца дзягцярствам.*

**ДЗЯ́ДЗІНА**, -ы, *мн.* -ы, -дзін, *ж.* Дзядзькава жонка. *У хаце ўсе паважалі працавітую дзядзіну.*

**ДЗЯДЗІ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (гіст.). **1.** Цэнтральная частка старажытнага горада, умацаваная валамі, а пазней мураванымі сценамі і драўлянымі вежамі. **2.** Прасторны двор, агароджаны пляц (звычайна перад маёнткам, царквой; разм.).

**ДЗЯ́ДЗЬКА**, -і, *м.* **1.** *мн.* -і, -аў. Бацькаў або матчын брат. *У госці прыехаў д. Лявон.* **2.** *мн.* -і́, -о́ў. Дарослы мужчына наогул; зварот да старэйшага мужчыны. *Скажыце, д., як прайсці ў бальніцу?* ◊ **І квіта, дзядзька Мікіта** (разм.) — і ўсё тут. ‖ *ласк.* **дзя́дзечка**, -і, *мн.* -і, -чак, *м.*

**ДЗЯДЗЬКАВА́ННЕ**, -я, *н.* (гіст.). Стары звычай шляхты ў беларускіх землях аддаваць дзяцей у сялянскую сям'ю на выхаванне.

**ДЗЯ́ДЗЬКАЎ**, -кава. Які належыць дзядзьку. *Дзядзькава хата.*

**ДЗЯ́ДЗЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *м.* Дарослы мужчына (у мове дзяцей). *Мама, у таго дзядзі смешны капялюш.*

**ДЗЯДО́ЎНІК**, -у, *м.* Каліўе, зараснік дзядоў[2].

**ДЗЯДО́ЎСКІ** *гл.* дзе́даўскі.

**ДЗЯДЫ́**[1], -о́ў. **1.** Людзі, якія жылі раней, продкі. *Д. і прадзеды нашы.* **2.** (з вялікай літары). Абрад памінання нябожчыкаў, а таксама дзень, калі выконваўся гэты абрад. *Восеньскія Д.*

**ДЗЯДЫ́**[2], -о́ў, *адз.* дзед, -а, *М* дзе́дзе, *м.* **1.** Пустазелле з калючым лісцем і сцяблом, з лілавата-чырвоным суквеццем; бадзяк. **2.** Пустазелле з шырокім лісцем і ўчэпістымі суквеццямі; лопух. *На штаны начаплялася дзядоў.*

**ДЗЯЖА́**, -ы́, *мн.* дзе́жы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) дзяжы́, дзеж, *ж.* Вялікая дзежка для заквашвання цеста на хлеб. *Хлебная д.*

**ДЗЯЖУ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (разм.). Памяшканне, пакой для дзяжурства.

**ДЗЯЖУ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выконвае пэўныя абавязкі ў парадку чаргі. *Д. ўрач.* **2.** Які працуе ў час адпачынку іншых падобных устаноў. *Дзяжурная аптэка. Д. магазін.* **3.** *у знач. наз.* **дзяжу́рны**, -ага, *м.*,

**ДЫКТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* дыктаваць. **2.** *мн.* -і, -то́вак. Тое, што і *дыктант.*

**ДЫ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* Вымаўленне, ступень выразнасці ў вымаўленні слоў пры размове, чытанні, спяванні і пад. *Добрая д.* ‖ *прым.* **дыкцы́йны**, -ая, -ае.

**ДЫ́ЛДА**, -ы, *ДМ* -лдзе, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (разм., пагард.). Пра высокага нязграбнага чалавека.

**ДЫЛЕ́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ле́м, *ж.* **1.** Меркаванне, паводле якога прадмету прыпісваюцца дзве супярэчлівыя прыметы, якія выключаюць магчымасць трэцяй (спец.). **2.** Становішча, пры якім выбар аднаго з двух супрацьлеглых рашэнняў аднолькава цяжкі. *Стаяць перад складанай дылемай.*

**ДЫ́ЛЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, фірма, банк, што займаюцца перапродажам тавараў, купляй-продажам каштоўных папер, валюты і пад. і дзейнічаюць за свой кошт і ад свайго імя. ‖ *прым.* **ды́лерскі**, -ая, -ае.

**ДЫЛЕТА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца навукай ці мастацтвам без спецыяльнай падрыхтоўкі, маючы толькі павярхоўнае ўяўленне аб прадметах свайго занятку. *Д. у музыцы. Д. у мовазнаўстве.* ‖ *ж.* **дылета́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дылета́нцкі**, -ая, -ае.

**ДЫЛЕТАНТЫ́ЗМ**, -у, *м. і* **ДЫЛЕТА́НЦТВА**, -а, *н.* Дылетанцкія адносіны да таго, што патрабуе спецыяльных прафесійных ведаў.

**ДЫЛІЖА́НС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). Мнагамесная карэта для перавозкі пасажыраў і пошты. ‖ *прым.* **дыліжа́нсавы**, -ая, -ае.

**ДЫЛО́ГІЯ**, -і, *мн.* -і, -гій, *ж.* Два творы аднаго аўтара, якія аб'яднаны агульнай задумай і пераемнасцю сюжэта. ‖ *прым.* **дылагі́чны**, -ая, -ае.

**ДЫМ**, -у, *мн.* дымы́, -о́ў, *м.* Лятучыя прадукты гарэння з дробнымі часцінкамі вугалю, што ўзнімаюцца ў паветра ў выглядзе цёмных клубоў. *Не бывае дыму без агню* (з нар.). ◊ **Пайсці з дымам** (разм.) — марна прапасці. **Пускаць дым у вочы** (разм.) — ствараць ілжывае ўражанне аб чым-н. **У дым** (разм.) — вельмі моцна, да крайнасці напіцца, быць п'яным. ‖ *памянш.* **дымо́к**, -мку́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* ‖ *прым.* **дымавы́**, -а́я, -о́е. *Дымавая заслона. Дымавая шашка.*

**ДЫМА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. дым, дымавы, напр.: *дымаадвод, дымаадсос, дымагенератар, дымамаскіроўка, дыманепранікальны, дымаўлоўнік, дымаход.*

**ДЫМАГА́РНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **дымагарная труба** (спец.) — труба ў паравым катле, па якой праходзяць з топкі газы, што награваюць ваду.

**ДЫМА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Прылада для акурвання пчол дымам. ‖ *прым.* **дыма́рны**, -ая, -ае.

**ДЫМАХО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Канал для выхаду дыму з печы (топкі) у комін. ‖ *прым.* **дымахо́дны**, -ая, -ае.

**ДЫМЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -мі́ць; *незак.* Дрэнна гарэць, вылучаючы вялікую колькасць дыму; выпускаць дым. *Печка пачала д. Дровы дымяць.*

**ДЫМІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -і́цца; *незак.* **1.** Выпускаць дым; тлець, вылучаючы многа дыму. *Галавешка дымілася на вогнішчы.* **2.** *перан.* Вылучаць пару. *Пасля дажджу дымілася зямля. У лагчыне дыміўся туман.*

**ДЫМІ́ЦЬ**, -млю́, -мі́ш, -мі́ць; -мі́м, -міце́, -мя́ць; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Кепска гарэць, даючы многа дыму. *Газніца дыміць.* **2.** *чым.* Курыць, пускаючы дым. *Д. папяросай.* ‖ *зак.* **надымі́ць**, -млю́, -мі́ш, -мі́ць; -мі́м, -міце́, -мя́ць.

**ДЫ́МКА**, -і, *ДМ* -мцы, *ж.* Лёгкая павалока з дыму, туману. *Бераг хаваўся ў дымцы.*

**ДЫ́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які дыміцца, вылучае многа дыму. *Дымная галавешка.* **2.** *перан.* Падобны на дым. *Дымная павалока воблакаў.*

**ДЫ́МЧАТЫ**, -ая, -ае. Колерам падобны на дым. *Дымчатыя акуляры.* ‖ *наз.* **ды́мчатасць**, -і, *ж.*

**ДЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, дын, *ж.* У механіцы: адзінка вымярэння сілы ў абсалютнай фізічнай сістэме адзінак.

**ДЫНАЗА́ЎР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Яшчарападобная жывёліна, якая вымерла ў далёкім мінулым. ‖ *прым.* **дыназа́ўравы**, -ая, -ае.

**ДЫНА́МА**, *нескл., н. і* **ДЫНА́МА-МАШЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -шы́н, *ж.* (уст.). Генератар пастаяннага току.

**ДЫНАМІ́ЗМ**, -у, *м.* Наяўнасць, багацце дынамікі (у 3 знач.) у чым-н. *Д. падзей.*

**ДЫНА́МІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Электрадынамічны гучнагаварыцель. *Уключыць д.*

**ДЫНА́МІКА**, -і, *ДМ* -міцы, *ж.* **1.** Раздзел механікі, які вывучае законы руху цел у залежнасці ад сіл, што дзейнічаюць на іх. **2.** Ход развіцця, змянення чаго-н. *Д. грамадскага развіцця.* **3.** Рух, дзеянне, развіццё. *Д. сучаснага жыцця.* ‖ *прым.* **дынамі́чны**, -ая, -ае.

**ДЫНАМІ́Т**, -у, *М* -мі́це, *м.* Моцнае выбуховае рэчыва, асноўнай састаўной часткай якога з'яўляецца нітрагліцэрына. ‖ *прым.* **дынамі́тавы**, -ая, -ае *і* **дынамі́тны**, -ая, -ае.

**ДЫНАМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дынаміка. **2.** Багаты на дзеянні, унутраную сілу. *Дынамічнае мастацтва.* ‖ *наз.* **дынамі́чнасць**, -і, *ж.*

**ДЫНАМО́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння велічыні сілы; сіламер.

**ДЫНА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грашовая адзінка ў некаторых Балканскіх, Блізкаўсходніх і Афрыканскіх дзяржавах. *Сербскі д. Туніскі д.*

**ДЫНА́СТЫЯ**, -і, *мн.* -і, -тый, *ж.* **1.** Шэраг манархаў з аднаго і таго ж роду, якія паслядоўна змяняюць адзін аднаго. *Д. Бурбонаў у Францыі.* **2.** *перан.* Шэраг пакаленняў, якія перадаюць з роду ў род прафесійнае майстэрства, традыцыі. *Д. сталявараў.* ‖ *прым.* **дынасты́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ДЫ́НГА**, *нескл., м.* Дзікі аўстралійскі сабака.

**ДЫ́НЯ**, -і, *мн.* -і, дынь, *ж.* Травяністая расліна сямейства гарбузовых з паўзучым сцяблом, а таксама яе круглы або авальны салодкі плод. ‖ *памянш.* **ды́нька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* ‖ *прым.* **ды́нны**, -ая, -ае.

**ДЫП...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. дыпламатычны, напр.: *дыпкур'ер, дыппошта, дыпслужба.*

**ДЫПЛАМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак. і незак., каго (што).* Выдаць (выдаваць) дыплом каму-н.

**ДЫПЛАМА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая ўзнагароджана дыпломам (у 2 знач.). *Д. міжнароднага конкурсу піяністаў.* ‖ *ж.* **дыпламантка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дыплама́нцкі**, -ая, -ае.

**ДЫПЛАМА́Т**, -а, *М* -ма́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Службовая асоба, якая займаецца дыпламатычнай дзейнасцю, работай у галіне знешніх зносін. **2.** *перан.* Пра чалавека, які дзейнічае тонка, умела. **3.** Плоскі чамаданчык для папер, кніг, сшыткаў і пад. (разм.). ‖ *ж.* **дыпламатка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 2 знач.).

**ДЫПЛАМА́ТЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Дзейнасць урада па ажыццяўленні знешняй, міжнароднай палітыкі дзяржавы. **2.** *перан.* Тонкі разлік, умельства і спрыт у дзеяннях, накіраваных на дасягненне якой-н. мэты. *Наскрозь бачу тваю дыпламатыю.* ‖ *прым.* **дыпламаты́чны**, -ая, -ае. *Дыпламатычныя адносіны. Д. падыход да справы.* ○ **Дыпламатычны корпус** — замежныя дыпламаты, акрэдытаваныя ў якой-н. краіне. ‖ *наз.* **дыпламаты́чнасць**, -і, *ж.*

**ДЫПЛО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пасведчанне аб заканчэнні навучальнай установы або аб прысваенні вучонай ступені або якога-н. звання. *Д. кандыдата навук.* **2.** Дакумент, што выдаецца як узнагарода за паспяховае выступленне на конкурсе, фестывалі, спартыўным спаборніцтве і пад. *Д. першай ступені.* ○ **Дыплом з адзнакай** — дыплом спецыяліста, які закончыў вышэйшую навучальную ўстанову з выдатнымі адзнакамі. ‖ *прым.* **дыпло́мны**, -ая, -ае.

**ДЫПЛО́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Студэнт, які выконвае дыпломную работу. ‖ *ж.* **дыпло́мніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ДЫПЛО́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дыплом. **2.** Выкананы для атрымання дыплома (у 1 знач.). *Д. праект. Дыпломная работа.*

**ДЫРЫЖА́БЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Паветраплавальны апарат, напоўнены газам, забяспечаны рухавіком з паветраным вінтом. ‖ *прым.* **дырыжа́блевы**, -ая, -ае.

**ДЫРЫЖО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кіраўнік калектыву выканаўцаў у аркестры, хоры. ‖ *прым.* **дырыжо́рскі**, -ая, -ае.

**ДЫРЫЖЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., чым.* Кіраваць аркестрам або хорам пры выкананні музычнага твора. ‖ *наз.* **дырыжы́раванне**, -я, *н.*

**ДЫРЭ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кіраўнік прадпрыемства, якой-н. дзяржаўнай або навучальнай установы. *Д. фабрыкі. Д. вучылішча. Д. фірмы.* ‖ *ж.* **дырэ́ктарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **дырэ́ктарскі**, -ая, -ае.

**ДЫРЭКТАРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Калегія дырэктараў якога-н. буйнога прадпрыемства, ведамства на чале з галоўным дырэктарам.

**ДЫРЭ́КТАРЫХА**, -і, *ДМ* -рысе, *мн.* -і, -рых, *ж.* (разм.). Жонка дырэктара.

**ДЫРЭКТО́РЫЯ**, -і, *ж.* (гіст.). Кіруючы орган у Францыі ў час Французскай буржуазнай рэвалюцыі 1795—1799 гг.

**ДЫРЭКТЫ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -ты́ў, *ж.* Агульнае кіруючае ўказанне службовай асобы або вышэйшага органа ніжэйшаму, абавязковае для выканання. ‖ *прым.* **дырэкты́ўны**, -ая, -ае.

**ДЫРЭКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дырэктыва. **2.** *перан.* Катэгарычны, які мае характар дырэктывы. *Дырэктыўныя ўказанні.* ‖ *наз.* **дырэкты́ўнасць**, -і, *ж.*

**ДЫРЭ́КЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Кіраўнічы орган прадпрыемства, ведамства, навучальнай установы на чале з дырэктарам. *Распараджэнне дырэкцыі.* **2.** Памяшканне, дзе знаходзіцца такое кіраўніцтва. ‖ *прым.* **дырэкцы́йны**, -ая, -ае.

**ДЫС...** (а таксама **дыз...**), *прыстаўка.* Утварае дзеясловы і назоўнікі са знач. парушэння, адсутнасці або процілегласці, напр.: *дысгарманіраваць, дыскваліфікаваць, дыскамфорт, дыслакацыя, дысфункцыя.*

**ДЫСАНА́НС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Негарманічнае спалучэнне музычных гукаў; *проціл.* кансананс. **2.** *перан.* Тое, што ўносіць разлад у што-н., рэзка пярэчыць чаму-н. *Яго думка прагучала дысанансам на сходзе.*

**ДЫСГАРМАНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., з чым* і *без дап.* Знаходзіцца ў дысгармоніі, змяшчаць у сабе дысгармонію.

**ДЫСГАРМО́НІЯ**, -і, *ж.* **1.** Парушэнне гармоніі, адсутнасць сугучнасці; немілагучнасць. **2.** *перан.* Разлад, няўзгодненасць, парушэнне адпаведнасці чаго-н. чаму-н. *Д. колераў у пейзажы.* ‖ *прым.* **дысгармані́чны**, -ая, -ае. *Дысгарманічнае спалучэнне колераў.* ‖ *наз.* **дысгармані́чнасць**, -і, *ж.*

**ДЫСЕРТА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто піша або абараняе дысертацыю. ‖ *ж.* **дысерта́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дысерта́нцкі**, -ая, -ае.

**ДЫСЕРТА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Навуковая работа, якая публічна абараняецца яе аўтарам на пасяджэнні спецыяльнага вучонага савета для атрымання вучонай ступені. *Доктарская д.* ‖ *прым.* **дысертацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЫСІДЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, хто адступае ад пануючага ў краіне веравызнання; вераадступнік. **2.** Чалавек, які не згодны з пануючай ідэалогіяй, які інакш мысліць. ‖ *ж.* **дысідэ́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дысідэ́нцкі**, -ая, -ае.

**ДЫСІМІЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Распадабненне двух блізкіх па гучанні гукаў. **2.** Распад складаных арганічных рэчываў у працэсе жыццядзейнасці арганізма. ‖ *прым.* **дысіміляты́ўны**, -ая, -ае. *Дысімілятыўнае аканне.*

**ДЫСК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Прадмет, дэталь якой-н. машыны, прыстасавання ў выглядзе плоскага круга. *Д. электрапілы. Д. аўтамата.* **2.** Спартыўны снарад у форме круга, які прымяняецца для кідання. *Кінуць д.* **3.** Аптычны носьбіт інфармацыі ў выглядзе плоскага круга. *Выпусціць д. Запісаць д. Модныя дыскі.* **4.** Прыстасаванне для захоўвання інфармацыі на камп'ютары. *Магнітны д. Аптычны д.* ‖ *прым.* **ды́скавы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Дыскавая барана.*

**ДЫСКАБО́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен — кідальнік дыска (у 2 знач.). ‖ *ж.* **дыскабо́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **дыскабо́льны**, -ая, -ае.

**ДЫСКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *незак., што.* Апрацоўваць глебу дыскавай бараной. *Д. ворыва.* ‖ *наз.* **дыскава́нне**, -я, *н.*

**ДЫСКАМФО́РТ**, -у, *М* -рце, *м.* Умовы жыцця, знаходжання, якія не забяспечваюць зручнасцей і спакою, а таксама такі стан. ‖ *прым.* **дыскамфо́ртны**, -ая, -ае.

**ДЫ́СКАНТ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Высокі дзіцячы голас. **2.** Спявак з такім голасам. ‖ *прым.* **дыскanто́вы**, -ая, -ае. *Дыскантовая партыя.*

**ДЫСКАТЭ́КА**, -і, *ДМ* -тэ́цы, *мн.* -і, -тэ́к, *ж.* **1.** Збор грамафонных пласцінак. **2.** Танцавальна-забаўляльнае мерапрыемства з музыкай, а таксама само памяшканне для такога мерапрыемства. ‖ *прым.* **дыскатэ́чны**, -ая, -ае.

**ДЫСКА́ЎНТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Магазін, які гандлюе таварамі па зніжаных цэнах.

**ДЫСКВАЛІФІКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Пазбавіць (пазбаўляць) кваліфікацыі, права выконваць пэўную работу, удзельнічаць у спартыўных спаборніцтвах. *Д. спартсмена.* ‖ *звар.* **дыскваліфікава́цца**, -ку́юся, -ку́ешся, -ку́ецца; -ку́йся. ‖ *наз.* **дыскваліфіка́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **дыскваліфікацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЫСКЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -ке́це, *мн.* -ы, -ке́т, *ж.* Партатыўная прылада для шматразовага запісу і захоўвання звестак, прызначаных для апрацоўкі на камп'ютары. ‖ *прым.* **дыске́тны**, -ая, -ае.

**ДЫСК-ЖАКЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Чалавек, які вядзе праграму дыскатэкі. ‖ *прым.* **дыск-жаке́йскі**, -ая, -ае.

**ДЫСКРЫМІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Абмежаваць (абмяжоўваць) у правах, пазбавіць (пазбаўляць) раўнапраўя. ‖ *наз.* **дыскрыміна́цыя**, -і, *ж. Расавая д.*

**ДЫСКРЭДЫТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Падарваць (падрываць) давер'е да каго-, чаго-н., прынізіць (прыніжаць) чый-н. аўтарытэт. ‖ *наз.* **дыскрэдыта́цыя**, -і, *ж.*

**ДЫСКРЭ́ТНЫ**, -ая, -ае (спец.). Паасобны, раздзельны, які складаецца з асобных частак. ‖ *наз.* **дыскрэ́тнасць**, -і, *ж.*

**ДЫСКУСІ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дыскусія. **2.** Няпэўны, які выклікае сумненне, спрэчны. *Дыскусійнае рашэнне.* ‖ *наз.* **дыскусі́йнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ДЫСКУ́СІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* Спрэчкі, абмеркаванне якога-н. пытання на сходзе, у друку. *Навуковая д.* ‖ *прым.* **дыскусі́йны**, -ая, -ае.

**ДЫСКУТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак., што, аб чым* і *без дап.* Весці дыскусію па тым ці іншым пытанні; абмяркоўваць што-н., удзельнічаючы ў дыскусіі.

**ДЫСЛАКА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Размяшчэнне ваенных аб'ектаў, сухапутных войск, размеркаванне ваеннай авіяцыі або караблёў на месцах базіравання. **2.** Зрушэнне касцей пры пераломах суставаў. *Д. касцей.* **3.** Зрушэнне пластоў зямной кары. *Д. горных парод.* ‖ *прым.* **дыслакацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЫСЛАЦЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго-што* (спец.). Размясціць (размяшчаць) узброеныя сілы. *Д. войскі.*

**ДЫСПАЗІ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* План размяшчэння войск, караблёў і пад. ‖ *прым.* **дыспазіцы́йны**, -ая, -ае.

**ДЫСПАНСЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльная медыцынская ўстанова, якая займаецца лячэннем пэўнага кантынгенту хворых, сістэматычна наглядае за іх здароўем. *Супрацьтуберкулёзны д.* ‖ *прым.* **дыспансе́рны**, -ая, -ае.

**ДЫСПАНСЕРЫЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Сістэма медыцынскіх мерапрыемстваў, якія ажыццяўляюцца дыспансерамі з мэтай прафілактыкі і своечасовага лячэння захворванняў. *Д. насельніцтва.*

**ДЫСПЕ́РСІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Раскладанне, раздзяленне, рассейванне. ‖ *прым.* **дыспе́рсны**, -ая, -ае. ○ **Дысперсная сістэма** — рэчыва ў выглядзе дробных часцінак разам з тым асяроддзем, у якім яно рассеяна.

**ДЫСПЕ́ТЧАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік, які рэгулюе рух транспарту, ход работы прадпрыемства і пад. з аднаго цэнтральнага пункта. *Д. аўтамабільнай базы.* ‖ *прым.* **дыспе́тчарскі**, -ая, -ае. *Д. пункт. Цэнтральная дыспетчарская* (наз.).

**ДЫСПЕТЧАРЫЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Цэнтралізацыя аператыўнага кантролю і кіравання вытворчымі і іншымі працэсамі пры дапамозе тэхнічных сродкаў сувязі, сігналізацыі, тэлемеханікі і аўтаматыкі.

**ДЫСПЛЭ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (спец.). Прыстасаванне візуальнага адлюстравання інфармацыі, атрыманай ад ЭВМ. ‖ *прым.* **дыспле́йны**, -ая, -ае.

**ДЫСПРАПО́РЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Неадпаведнасць паміж часткамі цэлага, адсутнасць прапорцыі. *Д. ў тэмпах развіцця розных галін народнай гаспадаркі.* ‖ *прым.* **дыспрапарцыяна́льны**, -ая, -ае.

**ДЫ́СПУТ**, -у, *М* -пуце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Публічныя спрэчкі на навуковую або важную грамадскую тэму. *Літаратурны д.*

**ДЫСПУТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак.* Весці дыспут, удзельнічаць у дыспуце; спрачацца.

**ДЫСТА́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Адлегласць, прамежак паміж чым-н. *Забег на кароткую дыстанцыю. Сысці з дыстанцыі.* **2.** Участак адміністрацыйна-тэхнічнага падзелу чыгуначнага, шасэйнага або воднага пуці. *Начальнік дыстанцыі.* ‖ *прым.* **дыстанцы́йны**, -ая, -ае. *Дыстанцыйнае кіраванне.*

**ДЫСТРАФІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Расстройства жыўлення тканак, органаў або цэлага арганізма, абумоўленае парушэннем абмену рэчываў. *Д. сардэчнай мышцы.* ‖ *прым.* **дыстрафі́чны**, -ая, -ае.

**ДЫСТРО́ФІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Хворы на дыстрафію.

**ДЫСТЫЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Ачысціць (ачышчаць) перагонкай. *Д. ваду.* ‖ *наз.* **дыстыля́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **дыстыляцы́йны**, -ая, -ае.

**ДЫСЦЫПЛІ́НА**[1], -ы, *ж.* Абавязковае для ўсіх членаў якога-н. калектыву падпарадкаванне вызначанаму парадку, правілам. *Працоўная д. Воінская д. Школьная д.* ‖ *прым.* **дысцыплiна́рны**, -ая, -ае. *Дысцыплінарнае спагнанне. Д. статут.*

**ДЫСЦЫПЛІ́НА**[2], -ы, *мн.* -ы, -лі́н, *ж.* Асобная галіна якой-н. навукі; вучэбны прадмет. *Філалагічныя дысцыпліны.*

**ДЫСЦЫПЛІНАВА́НЫ**, -ая, -ае. Які падпарадкоўваецца дысцыпліне[1], захоўвае парадак. *Д. работнік. Д. навучэнец.* ‖ *наз.* **дысцыплінава́насць**, -і, *ж.*

**ДЫСЦЫПЛІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Прывучыць (прывучаць) да дысцыпліны[1]. *Дружба згуртоўвае і дысцыплінуе байцоў.*

**ДЫФАМА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Распаўсюджванне ў друку звестак (сапраўдных або ўяўных), якія ганьбяць, няславяць каго-н. *Справа аб дыфамацыі.* ‖ *прым.* **дыфамацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЫФЕРЭНЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е *і* **ДЫФЕРЭНЦЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Размежаваць (размяжоўваць), адрозніць (адрозніваць) асобнае, прыватнае пры разглядзе, вывучэнні чаго-н. *Д. нормы расцэнак.* **2.** Знайсці (знаходзіць) дыферэнцыял (у 1 знач.). ‖ *наз.* **дыферэнцыя́цыя**, -і, *ж.* (да 1 знач.) *і* **дыферэнцы́раванне**, -я, *н.*

**ДЫФЕРЭНЦЫЯ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** У матэматыцы: лінейная частка прырашчэння залежнай пераменнай функцыі. **2.** Механізм у прыводзе вядучых колаў аўтамабіля, трактара і пад., які дазваляе праваму і леваму колам круціцца з рознай хуткасцю. *Д. з канічнымі зубчастымі коламі.* ‖ *прым.* **дыферэнцыя́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Дыферэнцыяльнае вылічэнне.*

**ДЫФЕРЭНЦЫЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дыферэнцыял. **2.** Розны, неаднолькавы пры розных умовах. *Дыферэнцыяльная рэнта. Д. тарыф.*

**ДЫФІРА́МБ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У старажытных грэкаў: урачыстая харавая песня ў гонар бога Дыяніса. **2.** *перан.* Перабольшаная пахвала; усхваленне. *Спяваць дыфірамбы каму-, чаму-н.* ‖ *прым.* **дыфірамбі́чны**, -ая, -ае. *Дыфірамбічныя вершы* (да 1 знач.).

**ДЫФРА́КЦЫЯ**, -і, *ж.* У фізіцы: агібанне хвалямі (светлавымі, гукавымі і пад.) сустрэчных перашкод. *Д. святла.* ‖ *прым.* **дыфракцы́йны**, -ая, -ае. *Дыфракцыйнае выпраменьванне. Дыфракцыйная рашотка.*

**ДЫФТО́НГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У лінгвістыцы: спалучэнне двух галосных гукаў, якія вымаўляюцца злітна, як адзін гук. ‖ *прым.* **дыфтангі́чны**, -ая, -ае.

**ДЫФТЭ́РЫТ**, -у, *М* -ры́це, *м. і* **ДЫФТЭРЫ́Я**, -і, *ж.* Вострая заразная пераважна дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца паражэннем зева, слізістых абалонак носа і гартані. ‖ *прым.* **дыфтэры́тны**, -ая, -ае *і* **дыфтэры́йны**, -ая, -ае.

**ДЫФУ́ЗІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Пранікненне аднаго рэчыва ў другое пры іх узаемным датыканні ў выніку цеплавога перамяшчэння часцінак рэчыва. *Д. газаў.* ‖ *прым.* **дыфузі́йны**, -ая, -ае.

**ДЫФУ́ЗНЫ**, -ая, -ае. Невыразны, расплывісты. *Дыфузныя туманнасці.*

**ДЫХ**, -у, *м.* (разм.). Дыханне. *Хацелася крыкнуць, але не хапіла дыху.* ◊ **Адным дыхам** (разм.) — за адзін раз, вельмі хутка. **Ні слыху ні дыху** (разм.) — няма ніякіх вестак.

**ДЫ́ХАВІЦА**, -ы, *ж.* **1.** Цяжкае дыханне пры захворванні бронхаў. *Пакутаваць дыхавіцай.* **2.** Народная назва хваробы лёгкіх у коней і іншых жывёл. *Нагнаць дыхавіцу каню.* ‖ *прым.* **ды́хавічны**, -ая, -ае.

**ДЫХА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Працэс паглынання кіслароду і выдзялення вуглякіслага газу жывымі арганізмамі. *Стомленасць праяўлялася ў паскораным дыханні.* **2.** *перан.* Подых, павеў чаго-н. *Д. вясны.* ○ **Штучнае дыханне** — сістэма прыёмаў для аднаўлення натуральнага дыхання. ◊ **Другое дыханне** — аб новых сілах, бадзёрасці ў кага-н. пасля стомленасці, апатыі. ‖ *прым.* **ды́хальны**, -ая, -ае.

**ДЫ́ХАЦЬ**, ды́хаю, ды́хаеш, ды́хае; *незак.* **1.** Паглынаць кіслarод і выдзяляць вуглякіслы газ. *Хворы цяжка дыхае. Расліны дыхаюць лісцем.* **2.** *перан., чым.* Быць захопленым чым-н., жыць якой-н. ідэяй. *Ён жыў і дыхаў кансерваторыяй.* **3.** *перан., чым.* Вылучаць, распаўсюджваць што-н.; быць прасякнутым чым-н., выказваць што-н. *Ноч дыхала пахамі траў. Яго творы дыхаюць вайной. Твар спартсмена дыхаў здароўем.* ◊ **Дыхаць свабодна (вольна)** — адчуваць палёгку, вызваліўшыся ад чаго-н. ‖ *аднакр.* **дыхну́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́ (да 1 знач.; разм.).

**ДЫХТ**, -у, *м.* У выразе: **даць дыхту** (разм.) — задаць наганяй.

**ДЫ́ШАЛЬ**, -шля, *мн.* -шлі, -шляў, *м.* **1.** Тоўстая аглобля, якая прымацоўваецца да сярэдзіны пярэдняй восі пры парнай запрэжцы. **2.** У плузе: жалезная выгнутая пласціна, да пярэдняга канца якой прымацоўваецца ворчык. ‖ *прым.* **ды́шлевы**, -ая, -ае.

**ДЫЭЛЕ́КТРЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Рэчыва, цела, якое дрэнна праводзіць электрычны ток; неправаднік. ‖ *прым.* **дыэлектры́чны**, -ая, -ае.

**ДЫЯБЕ́Т**, -у, *М* -бéце, *м.* Назва шэрагу хвароб, выкліканых парушэннем абмену рэчываў. ○ **Цукровы дыябет** — хвароба, якая характарызуецца павелічэннем цукру ў крыві і мачы. ‖ *прым.* **дыябеты́чны**, -ая, -ае.

**ДЫЯБЕ́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Хворы на дыябет. ‖ *ж.* **дыябеты́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ДЫЯГАНА́ЛЬ**[1], -ю, *м.* Шчыльная баваўняная або шарсцяная тканіна з косымі рубчыкамі. *Купіць дыяганалю на паліто.* ‖ *прым.* **дыягана́левы**, -ая, -ае.

**ДЫЯГАНА́ЛЬ**[2], -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* У матэматыцы: прамая лінія, што злучае два несумежныя вуглы многавугольніка або дзве вяршыні шматгранніка, якія не ляжаць у адной плоскасці. ‖ *прым.* **дыягана́льны**, -ая, -ае.

**ДЫЯ́ГНАЗ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урачэбнае заключэнне аб характары і сутнасці хваробы, а таксама яе абазначэнне. *Паставіць д.* ‖ *прым.* **дыягнасты́чны**, -ая, -ае.

**ДЫЯГНАСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). **1.** Паставіць (ставіць) дыягназ. *Д. хваробу.* **2.** Устанавіць (устанаўліваць) тэхнічны стан машын, механізмаў. ‖ *наз.* **дыягнастава́нне**, -я, *н.* і **дыягно́стыка**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* *Дыягнаставанне хваробы. Тэхнічная дыягностыка. Спецыяліст па дыягностыцы.*

**ДЫЯГНО́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач, які ўстанаўлівае дыягназ.

**ДЫЯГНО́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** *гл.* дыягнаставаць. *Ранняя д. захворвання. Лабараторная д.* **2.** Галіна медыцыны аб метадах і прынцыпах вызначэння дыягназу. ‖ *прым.* **дыягнасты́чны**, -ая, -ае.

**ДЫЯГРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́м, *ж.* Графічны адрыс, які наглядна ілюструе суадносіны якіх-н. велічынь. *Д. росту навуковых кадраў.* ‖ *прым.* **дыягра́мны**, -ая, -ае.

**ДЫЯДЭ́МА**, -ы, *мн.* -ы, -дэ́м, *ж.* **1.** Вянок або галаўная павязка з упрыгожаннямі з каштоўных камянёў, якія надзявалі цары і вярхоўныя жрацы ў мінулыя часы. **2.** Жаночае галаўное ўпрыгожанне з каштоўных камянёў у выглядзе кароны. *Д. з сапраўднымі брыльянтамі.*

**ДЫЯ́КАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У праваслаўнай царкве: ніжэйшае духоўнае званне; памочнік святара ў час царкоўнай службы. ‖ *прым.* **дыя́канскі**, -ая, -ае. *Д. сан.*

**ДЫЯ́КАНІХА**, -і, *ДМ* -ніхе, *мн.* -і, -ніх, *ж.* (разм.). Жонка дыякана.

**ДЫЯКРЫТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **дыякрытычны знак** — надрадковы ці падрадковы знак у літары (у некаторых алфавітах — побач з літарай), які ўдакладняе гучанне, напр., значок кароткасці над літарамі «ў» або «й».

**ДЫЯЛЕ́КТ**, -у, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мясцовая разнавіднасць мовы, якая адрозніваецца ад сумежных гаворак своеасаблівымі фанетычнымі, граматычнымі і лексічнымі рысамі. *Паўночна-ўсходні д. беларускай мовы.* ‖ *прым.* **дыяле́ктны**, -ая, -ае. *Д. арэал.*

**ДЫЯЛЕКТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел мовазнаўства, які вывучае дыялекты. ‖ *прым.* **дыялекталагі́чны**, -ая, -ае.

**ДЫЯЛЕКТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне дыялекталогіі.

**ДЫЯЛЕКТЫ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Слова або выраз якога-н. дыялекту, ужытыя ў літаратурнай мове.

**ДЫЯЛЕ́КТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Паслядоўнік дыялектычнай філасофіі, дыялектыкі (у 1 знач.).

**ДЫЯЛЕ́КТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Філасофскае вучэнне аб усеагульных законах руху і развіцця прыроды, чалавечага грамадства і мыслення; навуковы метад пазнання з'яў прыроды і грамадства шляхам ускрыцця ўнутраных супярэчнасцей і барацьбы процілегласцей, якія прыводзяць да скачкападобнага пераходу з адной якасці ў другую. *Матэрыялістычная д.* **2.** Сам працэс такога руху і развіцця. *Д. падзей. Д. гісторыі.* **3.** Майстэрства весці спрэчкі, прымяняць лагічныя довады (уст.). ‖ *прым.* **дыялекты́чны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Д. матэрыялізм. Д. метад; наз.* **дыялекты́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ДЫЯЛО́Г**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Размова паміж дзвюма асобамі, абмен рэплікамі. *Сцэнічны д.* **2.** *перан.* Перагаворы паміж двума бакамі. *Палітычны д. Канструктыўны д.* ‖ *прым.* **дыялагі́чны**, -ая, -ае.

**ДЫЯМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Алмаз, брыльянт. **2.** Назва аднаго з дробных шрыфтоў. ‖ *прым.* **дыяме́нтавы**, -ая, -ае.

**ДЫЯ́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У матэматыцы: адрэзак прамой лініі, які злучае дзве кропкі акружнасці і праходзіць праз яе цэнтр. ‖ *прым.* **дыяметра́льны**, -ая, -ае.

**ДЫЯМЕТРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дыяметр. **2.** Поўны, крайні (перан.). *Дыяметральная супрацьлегласць. Характары дыяметральна* (прысл.) *адрозныя.* ‖ *наз.* **дыяметра́льнасць**, -і, *ж.*

**ДЫЯПАЗІТЫ́Ў**, -ты́ва, *мн.* -ты́вы, -ты́ваў, *м.* Пазітыўны (у 1 знач.) фатаграфічны здымак на празрыстым матэрыяле, прызначаны для дэманстрацыі на экране з дапамогай праекцыйнага апарата. ‖ *прым.* **дыяпазіты́ўны**, -ая, -ае.

**ДЫЯПАЗО́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Інтэрвал паміж самым нізкім і самым высокім гукамі пеўчага голасу, мелодыі або музычнага інструмента (спец.). **2.** Вобласць, у межах якой ажыццяўляюцца якія-н. вымярэнні (спец.). *Д. радыёчастот.* **3.** *перан.* Аб'ём ведаў, інтарэсаў. *Дыяпазон вучонага.* ‖ *прым.* **дыяпазо́нны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ДЫЯПТРЫ́Я**, -і, *мн.* -ы́і, -ы́й, *ж.* Адзінка вымярэння праламляльнай сілы аптычных лінз. ‖ *прым.* **дыяптры́чны**, -ая, -ае.

**ДЫЯРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́м, *ж.* **1.** Карціна, намаляваная на празрыстай тканіне або шкле і спецыяльна асветленая для стварэння ўражання аб'ёмнасці. **2.** Жывапісная карціна з рэальнымі або бутафорскімі прадметамі, макетамі. ‖ *прым.* **дыяра́мны**, -ая, -ае.

**ДЫЯ́СПАРА**, -ы, *мн.* -ы, -пар, *ж.* Частка народа (этнічнай супольнасці), якая жыве па-за межамі гістарычнай радзімы. *Беларуская д. ў Канадзе.*

**ДЫЯТЭ́З**, -у, *м.* Схільнасць чалавечага арганізма да некаторых захворванняў (алергія, рэспіраторныя інфекцыі і інш.). ‖ *прым.* **дыятэ́зны**, -ая, -ае.

**ДЫЯФІ́ЛЬМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Фільм, складзены з дыяпазітываў. *Дзіцячыя дыяфільмы.* ‖ *прым.* **дыяфі́льмавы**, -ая, -ае.

**ДЫЯФРА́ГМА**, -ы, *мн.* -ы, -фра́гм *і* -аў, *ж.* **1.** Сухажыльна-мышачная перагародка, якая аддзяляе грудную поласць ад брушной. **2.** Святлонепранікальная перагародка ў аптычных прыборах з адтулінай для прапускання пучка прамянёў. ‖ *прым.* **дыяфра́гмавы**, -ая, -ае.

**ДЫЯХРАНІ́Я**, -і, *ж.* Стан якіх-н. з'яў, сістэмы ў іх развіцці, гісторыі. *Моўная д.* ‖ *прым.* **дыяхрані́чны**, -ая, -ае *і* **дыяхро́нны**, -ая, -ае. *Дыяхранічны аналіз. Дыяхронны метад.*

ДЭ..., *прыстаўка.* Утварае дзеясловы і назоўнікі са знач. адсутнасці прыметы або супрацьлегласці дзеяння, напр.: *дэкадзіраваць, дэшыфраваць, дэмантаж, дэгуманізацыя, дэнацыяналізацыя, дэстабілізацыя.*

**ДЭБАРКА́ДАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Плывучая параходная прыстань, а таксама месца пасадкі на параходнай прыстані. **2.** Крытая платформа чыгуначнай станцыі (уст.). ‖ *прым.* **дэбарка́дарны**, -ая, -ае.

**ДЭБАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак., што* і *без дап.* Абмяркоўваць што-н., весці дэбаты. *Д. пытанне.*

**ДЭБА́ТЫ**, -аў. Абмеркаванне якога-н. пытання, спрэчкі. *Разгарнуліся д. Парламенцкія д.*

**ДЭБАШЫ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто ўчыняе дэбошы; буян, скандаліст. ‖ *прым.* **дэбашы́рскі**, -ая, -ае.

**ДЭБАШЫ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* Учыняць дэбошы; буяніць, скандаліць. ‖ *зак.* **надэбашы́рыць**, -ру, -рыш, -рыць. ‖ *наз.* **дэбашы́рства**, -а, *н.*

**ДЭ́БЕТ**, -у, *М* -беце, *м.* (спец.). У прыходна-расходных кнігах: рахунак паступленняў і даўгоў дадзенай установе. ‖ *прым.* **дэбето́вы**, -ая, -ае.

**ДЭБІ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек з лёгкай формай прыроджанай псіхічнай непаўнацэннасці, разумовай адсталасці. ‖ *прым.* **дэбі́льны**, -ая, -ае; *наз.* **дэбі́льнасць**, -і, *ж.*

**ДЭБІ́Т**, -у, *М* -біце, *м.* (спец.). Колькасць газу, вады, нафты ці іншай вадкасці, якую дае крыніца за адзінку часу. *Д. нафтавай свідравіны.* ‖ *прым.* **дэбі́тны**, -ая, -ае.

**ДЭБІТО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Даўжнік прадпрыемства, арганізацыі, установы. ‖ *прым.* **дэбіто́рскі**, -ая, -ае. *Дэбіторская запазычанасць.*

**ДЭБО́Ш**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скандал з шумам і бойкай. *Учыніць д.*

**ДЭБЮ́Т**, -у, *М* -бюце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Першае выступленне на сцэне або наогул у якой-н. дзейнасці. *Д. у оперным тэатры. Д. маладога паэта.* **2.** Пачатак шахматнай або шашачнай партыі. *Адкрыты д.* ‖ *прым.* **дэбю́тны**, -ая, -ае.

**ДЭБЮТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *зак.* і *незак.* Упершыню публічна выступіць (выступаць) на сцэне або ў якой-н. галіне дзейнасці.

**ДЭБЮТА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто дэбютуе дзе-н. *Д. выступіў з вялікім поспехам.* ‖ *ж.* **дэбюта́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дэбюта́нцкі**, -ая, -ае.

**ДЭВА́ЙС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Любое тэхнічнае прыстасаванне, створанае для выканання тых ці іншых запраграмаваных у ім функцый.

**ДЭВАЛЬВА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Афіцыйнае змяншэнне залатога ўтрымання грашовай адзінкі, а таксама зніжэнне курсу нацыянальнай валюты ў адносінах да валюты іншай краіны. ‖ *прым.* **дэвальвацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭВІ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Кароткае выслоўе, якое выражае кіруючую ідэю паводзін або дзейнасці. *Наш д. — наперад!* **2.** Слова або выслоўе, якое на конкурсах аўтар ставіць на творы замест свайго імя. *Праект пад дэвізам «Перамога».* ‖ *прым.* **дэві́зны**, -ая, -ае.

**ДЭВІЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Адхіленне стрэлкі компаса ад лініі магнітнага мерыдыяна пад уздзеяннем вялікіх мас жалеза. **2.** Адхіленне цела, што рухаецца, ад

зададзенага напрамку пад уплывам якіх-н. выпадковых прычын. ‖ *прым.* **дэвіяцы́йны**, -ая, -ае *і* **дэвія́нтны**, -ая, -ае.

**ДЭГАЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Апарат для дэгазацыі. **2.** Асоба, якая праводзіць дэгазацыю. **3.** Сродак, рэчыва для дэгазацыі. ‖ *прым.* **дэгаза́тарскі**, -ая, -ае.

**ДЭГАЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Абясшкоджванне або выдаленне адкуль-н. газаў, атрутных рэчываў. *Д. мясцовасці. Д. вадкасці.* ‖ *прым.* **дэгазацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭГАЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* Абясшкодзіць (абясшкоджваць) што-н. ад атрутных газаў, рэчываў. *Д. мясцовасць.*

**ДЭГЕНЕРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек з адзнакамі псіхічнага або фізічнага выраджэння. ‖ *ж.* **дэгенера́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ДЭГЕНЕРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Выраджэнне, пагаршэнне ад пакалення да пакалення біялагічных, а таксама псіхічных адзнак арганізма. ‖ *прым.* **дэгенераты́ўны**, -ая, -ае; *наз.* **дэгенераты́ўнасць**, -і, *ж.*

**ДЭГЕНЕРЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак.* Падвергнуцца (падвяргацца) дэгенерацыі.

**ДЭГРАДЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак.* Паступова пагаршаючыся, страчваючы каштоўныя якасці, прыйсці (прыходзіць) да выраджэння. ‖ *наз.* **дэграда́цыя**, -і, *ж.*

**ДЭГУМАНІЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Пазбаўленне гуманістычнага пачатку, гуманістычнай сутнасці; абесчалавечванне. *Д. працы.*

**ДЭГУСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што.* Вызначыць (вызначаць) на смак якасць прадукту пры яго вырабе. ‖ *наз.* **дэгуста́цыя**, -і, *ж.; прым.* **дэгустацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭГУСТА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст, які дэгустуе прадукты. *Д. чаю.*

**ДЭДУ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* Спосаб разважання ад агульных палажэнняў да прыватных выпадаў. ‖ *прым.* **дэдукты́ўны**, -ая, -ае. *Д. метад.*

**ДЭЗ...**, *прыстаўка.* Тое, што і *дэ...*; ужыв. перад галоснымі, напр.: *дэзактывацыя, дэзарганізацыя, дэзарыентацыя, дэзынтэграцыя, дэзынфармацыя.*

**ДЭЗАВУІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго (што).* У міжнародным праве: аб'явіць (аб'яўляць) аб нязгодзе з дзеяннямі даверанай асобы (дыпламатычнага прадстаўніка) або аб пазбаўленні яго права дзейнічаць надалей ад імя свайго ўрада. *Д. пасла.*

**ДЭЗАДАРА́НТ**, -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сродак для маскіроўкі, змяншэння ці паглынання непрыемных пахаў, а таксама прыстасаванне, дзе ўтрымліваецца такі сродак. ‖ *прым.* **дэзадара́нтны**, -ая, -ае.

**ДЭЗАКТЫВА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Выдаленне радыеактыўных забруджанняў з паверхні розных прадметаў, збудаванняў і пад. ‖ *прым.* **дэзактывацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭЗАРГАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Учыніць (учыняць) дэзарганізацыю дзе-н., сярод каго-н. *Варожая абарона была цалкам дэзарганізавана партызанамі.*

**ДЭЗАРГАНІЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто ўносіць дэзарганізацыю. ‖ *прым.* **дэзарганіза́тарскі**, -ая, -ае.

**ДЭЗАРГАНІЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Парушэнне парадку, дысцыпліны, звычайнай дзейнасці ў якой-н. справе, рабоце і пад. *Д. вытворчасці.* ‖ *прым.* **дэзарганізацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭЗАРЫЕНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Пазбавіць (пазбаўляць) правільнай арыентацыі, увесці (уводзіць) каго-н. у зман. *Д. праціўніка.* ‖ *наз.* **дэзарыента́цыя**, -і, *ж.*

**ДЭЗЕРЦІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто дэзерціраваў, зрабіў дэзерцірства. ‖ *прым.* **дэзерці́рскі**, -ая, -ае.

**ДЭЗЕРЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак.* Учыніць (учыняць) дэзерцірства. *Д. са сваёй часці.*

**ДЭЗЕРЦІ́РСТВА**, -а, *н.* **1.** Самавольнае пакіданне ваеннаслужачым вайсковай часці з мэтай ухілення ад воінскай службы; ухіленне ад прызыву ў армію. **2.** *перан.* Ухіленне ад выканання сваіх грамадзянскіх або службовых абавязкаў.

**ДЭЗЫНСЕ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* Знішчэнне шкодных насякомых спецыяльнымі сродкамі. *Д. зернясховішчаў. Д. адзення.* ‖ *прым.* **дэзынсекцы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭЗЫНФАРМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Увесці (уводзіць) у зман няправільнай або фальшывай інфармацыяй.

**ДЭЗЫНФАРМА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Распаўсюджванне няправільнай або фальшывай інфармацыі з мэтай увесці каго-н. у зман. *Д. грамадскасці.* ‖ *прым.* **дэзынфармацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭЗЫНФЕ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* Абеззаражванне, знішчэнне хваробатворных мікробаў пры дапамозе спецыяльных сродкаў. *Правесці дэзынфекцыю.* ‖ *прым.* **дэзынфекцы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭЗЫНФІЦЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* Зрабіць (рабіць) дэзынфекцыю чаго-н. *Д. вопратку хворага.* ‖ *зак.* таксама **прадэзынфіцы́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**ДЭІ́ЗМ**, -у, *м.* Рэлігійна-філасофскае вучэнне, якое прызнае Бога творцам свету, але адмаўляе яго ўмяшанне ў з'явы прыроды і грамадскага жыцця. ‖ *прым.* **дэісты́чны**, -ая, -ае.

**ДЭІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік дэізму. ‖ *прым.* **дэісты́чны**, -ая, -ае.

**ДЭЙТЭ́РЫЙ**, -ю, *м.* Стабільны ізатоп вадароду, цяжкі вадарод. ‖ *прым.* **дэйтэ́рыевы**, -ая, -ае.

**ДЭ́КА**, -і, *мн.* -і, дэк, *ж.* Дэталь струннага музычнага інструмента, якая служыць для ўзмацнення гуку.

**ДЭКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. дзесяць, напр.: *дэкаграм, дэкалітр, дэкатона.*

**ДЭКА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ка́д, *ж.* **1.** Прамежак часу ў дзесяць дзён. *Першая д. мая.* **2.** Дзесяць дзён, у якія праводзіцца якое-н. грамадскае мерапрыемства. *Д. беларускага мастацтва ў Маскве.* ‖ *прым.* **дэка́дны**, -ая, -ае. *Д. графік.*

**ДЭКАДА́НС**, -у, *м.* (кніжн.). **1.** Заняпад, культурны рэгрэс. **2.** Тое, што і *дэкадэнцтва.*

**ДЭКАДЭ́НЦТВА**, -а, *н.* Агульная назва нерэалістычных кірункаў у літаратуры і мастацтве канца 19 — пачатку 20 ст., якія характарызуюцца фармалізмам, крайнім індывідуалізмам. ‖ *прым.* **дэкадэ́нцкі**, -ая, -ае.

**ДЭКАЛЬТЭ́**, *нескл., н.* **1.** Вялікі выраз у верхняй частцы жаночага адзення, які адкрывае шыю, плечы, верхнюю частку грудзей. *Глыбокае д.* **2.** *у знач. прым., нязм.* Пра жаночае адзенне з такім выразам. *Сукенка д.* ‖ *прым.* **дэкальтава́ны**, -ая, -ае. *Дэкальтаваная сукенка. Перад люстэркам прыхарошвалася дэкальтаваная дама.*

**ДЭКА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кіраўнік факультэта ў вышэйшай навучальнай установе. *Д. філалагічнага факультэта.* ‖ *прым.* **дэка́нскі**, -ая, -ае.

**ДЭКАНА́Т**, -а, *М* -на́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Кіраўніцтва факультэта, якое ўзначальвае дэкан. **2.** Памяшканне, дзе знаходзіцца такое кіраўніцтва.

**ДЭКАРЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* Надаць (надаваць) чаму-н. прыгожы выгляд знешнім убраннем. *Д. залу кветкамі.* ‖ *зак.* таксама **задэкары́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**ДЭКАРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Мастак, які піша дэкарацыі, афармляе сцэну, здымачную пляцоўку. **2.** Спецыяліст па ўпрыгожванні будынкаў, памяшканняў. ‖ *прым.* **дэкара́тарскі**, -ая, -ае.

**ДЭКАРАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прызначаны для ўпрыгожання чаго-н. *Д. жывапіс. Дэкаратыўныя расліны.* **2.** Жывапісны, маляўнічы. *Д. від.* ‖ *наз.* **дэкараты́ўнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ДЭКАРА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Жывапісная або архітэктурная выява месца і абставін сцэнічнага дзеяння. *Д. першага акта.* **2.** *перан.* Пра што-н. паказное, штучнае. ◊ **Перамена дэкарацый** — аб змяненні абставін, становішча спраў, агульнага выгляду чаго-н. ‖ *прым.* **дэкарацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭКАЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Апрацаваць (апрацоўваць) шарсцяную тканіну парай або гарачай вадой, каб палепшыць яе якасць. ‖ *наз.* **дэкаціро́ўка**, -і,

*ДМ* -роўцы, *ж.* || *прым.* **дэкацыро́вачны**, -ая, -ае.

**ДЭКВАЛІФІКАВА́ЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; *зак.* Пазбавіць кваліфікацыі. || *звар.* **дэкваліфікава́цца**, -куюся, -куешся, -куецца. || *наз.* **дэкваліфіка́цыя**, -і, *ж.*

**ДЭКЛАМАВА́ЦЬ**, -мую, -муеш, -муе; -муй; -мава́ны; *незак., што.* Выразна, памайстэрску чытаць мастацкія творы. *Д. паэмы Янкі Купалы.* || *зак.* **прадэкламава́ць**, -мую, -муеш, -муе; -муй; -мава́ны. || *наз.* **дэклама́цыя**, -і, *ж.; прым.* **дэкламацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭКЛАМА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Артыст, які выступае з дэкламацыяй; той, хто дэкламуе. || *прым.* **дэклама́тарскі**, -ая, -ае. *Дэкламатарскае майстэрства.*

**ДЭКЛАРАВА́ЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -рава́ны; *зак.* і *незак., што.* Афіцыйна абвясціць (абвяшчаць) дэкларацыю (у 1 знач.), выступіць з дэкларацыяй аб чым-н. *Д. дзяржаўную незалежнасць.*

**ДЭКЛАРАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае форму дэкларацыі (у 1 знач.); урачысты. *Дэкларатыўная заява.* **2.** Не падмацаваны доказамі; знешні. *Усе яго абяцанні носяць д. характар.* || *наз.* **дэкларатыўнасць**, -і, *ж.*

**ДЭКЛАРА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Афіцыйнае абвяшчэнне або ўрачыстая праграмная заява. *Урадавая д. Д. аб дзяржаўным суверэнітэце.* **2.** Назва некаторых афіцыйных дакументаў з паведамленнем якіх-н. патрэбных звестак. *Гандлёвая д. Мытная д.* || *прым.* **дэкларацы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ДЭКЛАСАВА́НЫ**, -ая, -ае. У класавым грамадстве: які страціў усякую сувязь са сваім класам, не прымае ніякага ўдзелу ў грамадскай вытворчасці. *Дэкласаваныя элементы.* || *наз.* **дэкласава́насць**, -і, *ж.*

**ДЭКЛАСАВА́ЦЦА**, -суюся, -суешся, -суецца; -суйся; *зак.* і *незак.* Стаць (станавіцца) дэкласаваным.

**ДЭКО́Р**, -у, *м.* Сукупнасць, сістэма ўпрыгожанняў збудавання або вырабу. *Д. фасада. Д. вазы.*

**ДЭКО́РУМ**, -у, *м.* (кніжн.). Знешняя, паказная прыстойнасць; тое, што адпавядае такой прыстойнасці. *Захаваць д.*

**ДЭКРЭ́Т**, -а, *М* -рэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пастанова ўрада, якая мае сілу закона. *Д. аб міры. Д. аб зямлі.* **2.** Дэкрэтны водпуск, водпуск па цяжарнасці і родах (разм.). *Пайсці ў д. Знаходзіцца ў дэкрэце.* || *прым.* **дэкрэ́тны**, -ая, -ае.

**ДЭКРЭТАВА́ЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; -тава́ны; *зак.* і *незак., што.* Устанавіць (устанаўліваць) дэкрэтам, пастановай вышэйшых інстанцый.

**ДЭЛЕГАВА́ЦЬ**, -гую, -гуеш, -гуе; -гуй; -гава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Паслаць (пасылаць), выбраць (выбіраць) дэлегатам. *Д. на з'езд.*

**ДЭЛЕГА́Т**, -а, *М* -га́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Выбраны або прызначаны прадстаўнік якой-н. арганізацыі, установы, калектыву на сход, канферэнцыю, з'езд і пад. || *ж.* **дэлега́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **дэлега́цкі**, -ая, -ае.

**ДЭЛЕГА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Група дэлегатаў, якія прадстаўляюць той ці іншы калектыў, дзяржаву і пад. *Замежная рабочая д.*

**ДЭ́ЛЬТА**, -ы, *ДМ* -льце, *мн.* -ы, дэльт, *ж.* Вусце ракі з яго разгалінаваннямі на асобныя рукавы і частка сушы, што да яго прылягае. *Д. Дняпра.* || *прым.* **дэ́льтавы**, -ая, -ае.

**ДЭЛЬТАПЛА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лёгкі безматорны лятальны апарат з трохвугольнай нясучай паверхняй, прызначаны для спартыўнага планіравання.

**ДЭЛЬТАПЛАНЕРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Від спорту, звязаны з палётамі на дэльтапланах. || *прым.* **дэльтапла́нерны**, -ая, -ае.

**ДЭЛЬТАПЛАНЕРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які лятае на дэльтаплане. || *ж.* **дэльтапланеры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **дэльтапланеры́сцкі**, -ая, -ае.

**ДЭЛЬФІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Марская млекакормячая жывёліна сямейства дэльфінавых з чорнай спінай і белым жыватом. || *прым.* **дэльфі́навы**, -ая, -ае.

**ДЭЛЬФІНА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Комплекс збудаванняў для ўтрымання дэльфінаў з мэтай іх вывучэння, дрэсіроўкі і паказу наведвальнікам.

**ДЭМАБІЛІЗАВА́ЦЬ**, -зую, -зуеш, -зуе; -зуй; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Правесці (праводзіць) дэмабілізацыю. || *звар.* **дэмабілізава́цца**, -зуюся, -зуешся, -зуецца; -зуйся.

**ДЭМАБІЛІЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Перавод арміі і звязаных з ёю галін народнай гаспадаркі з ваеннага становішча на мірнае. *Д. арміі. Д. прамысловасці.* **2.** Звальненне з ваеннай службы ў запас. *Д. радавога і афіцэрскага складу.* **3.** *перан.* Аслабленне актыўнасці, гатоўнасці да выканання якіх-н. задач. || *прым.* **дэмабілізацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭМАГО́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца дэмагогіяй, карыстаецца дэмагагічнымі прыёмамі.

**ДЭМАГО́ГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Заснаванае на наўмысным скажэнні фактаў і падмане ўздзеянне на пачуцці, інстынкты маласвядомай часткі мас з разлікам на дасягненне сваіх мэт. *Прапагандысцкая д.* **2.** Разважанні або патрабаванні, заснаваныя на груба аднабаковым асэнсаванні і вытлумачэнні чаго-н. *Яго выступленне на сходзе — адна д.* || *прым.* **дэмагагі́чны**, -ая, -ае.

**ДЭМАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука, якая вывучае насельніцтва і заканамернасці яго развіцця ў грамадска-гістарычнай абумоўленасці. **2.** Паказчыкі колькаснага складу, размяшчэння і змянення насельніцтва дадзенай краіны. *Д. гарадоў.* || *прым.* **дэмаграфі́чны**, -ая, -ае.

**ДЭМАКРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыхільнік дэмакратыі. *Дэмакраты выказалі свае погляды.* **2.** Член дэмакратычнай партыі. **3.** Чалавек дэмакратычнага (у 2 знач.) укладу жыцця, поглядаў. || *ж.* **дэмакра́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ДЭМАКРАТЫЗАВА́ЦЬ**, -зую, -зуеш, -зуе; -зуй; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Здзейсніць (здзяйсняць) што-н. на дэмакратычных (або больш дэмакратычных) пачатках. *Д. выбарчую сістэму.* || *звар.* **дэмакратызава́цца**, -зуюся, -зуешся, -зуецца; -зуйся. || *наз.* **дэмакратыза́цыя**, -і, *ж.*

**ДЭМАКРАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Дэмакратычная форма кіравання, дэмакратычная будова грамадства, наяўнасць дэмакратычных свабод для шырокіх мас. **2.** Прастата ладу жыцця, даступнасць у зносінах з людзьмі. *Д. поглядаў. Д. ва ўкладзе жыцця.*

**ДЭМАКРАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дэмакратыя. **2.** Просты і даступны ў сваіх адносінах да людзей. *Д. начальнік.* || *наз.* **дэмакраты́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ДЭМАКРА́ТЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Палітычны лад, заснаваны на прызнанні прынцыпаў народаўладдзя, свабоды і роўнасці грамадзян. **2.** Прынцып арганізацыі калектыўнай дзейнасці, пры якім забяспечваецца актыўны і раўнапраўны ўдзел у ёй усіх членаў калектыву. || *прым.* **дэмакраты́чны**, -ая, -ае. *Д. лад. Дэмакратычная рэспубліка. Дэмакратычная партыя. Дэмакратычныя пераўтварэнні.*

**ДЭ́МАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У антычнай міфалогіі: добры або злы дух, які аказвае ўплыў на лёс, жыццё чалавека. **2.** У хрысціянскіх уяўленнях: злы дух, д'ябал. **3.** *перан., чаго.* Увасабленне якой-н. схільнасці, захаплення, заганы (уст.). *Д. нецярпення. Д. разладу.* || *прым.* **дэ́манскі**, -ая, -ае.

**ДЭМАНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* У некаторых рэлігіях: вучэнне аб дэманах, злых духах. || *прым.* **дэманалагі́чны**, -ая, -ае.

**ДЭМАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Уласцівы дэману; каварны і злы. *Д. смех.* **2.** *перан.* Які адмаўляе прынятае ўсімі і адрозніваецца моцным, уладарным характарам. *Дэманічная натура.*

**ДЭМАНСТРАВА́ЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -рава́ны; *зак.* і *незак.* **1.** Прыняць (прымаць) удзел у масавым шэсці для выказвання сваіх поглядаў. *Д. па вуліцы горада.* **2.** *каго-што.* Паказаць (паказваць) наглядным спосабам. *Д. новы кінафільм.* || *зак.* таксама **прадэманстрава́ць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -рава́ны.

**ДЭМАНСТРА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік дэманстрацыі (у 2 знач.). || *ж.* **дэманстра́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ДЭМАНСТРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая дэманструе (у 2 знач.) што-н. *Д. машын на прамысловай выстаўцы.* || *прым.* **дэманстра́тарскі**, -ая, -ае.

**ДЭМАНСТРАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўчыняецца з мэтай дэманстрацыі (у 5 знач.). *Дэманстратыўнае адмаўленне ад дзяжурства. Дэманстратыўна* (прысл.) *пакінуць сход.* **2.** Які з'яўляецца тактычнай

дэманстрацыяй (у 4 знач.) з мэтай заблытаць праціўніка. *Д. манеўр.*

**ДЭМАНСТРА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Масавае шэсце для выказвання якіх-н. грамадска-палітычных настрояў. *Першамайская д.* **2.** Нагляднае азнаямленне з чым-н., публічны паказ. *Д. фільма.* **3.** Праяўленне, сведчанне чаго-н. *Д. патрыятызму.* **4.** Ваенная аперацыя, якая мае на мэце адцягнуць увагу праціўніка ад месца галоўнага ўдару. **5.** Дзеянне, якое падкрэслена выказвае пратэст супраць чаго-н., нязгоду з чым-н. *Устроіць дэманстрацыю каму-н.* ‖ *прым.* **дэманстрацы́йны**, -ая, -ае (да 1, 2 і 5 знач.). *Дэманстрацыйныя табліцы. Дэманстрацыйная зала.*

**ДЭМАНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е *і* **ДЭМАНЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* Разабраць (разбіраць), зняць (знімаць) што-н., каб адрамантаваць або перамясціць на новае месца. *Д. электрастанцыю.* ‖ *наз.* **дэманта́ж**, -у́, *м. Д. аўтаматычнай лініі*; *прым.* **дэманта́жны**, -ая, -ае.

**ДЭМАРАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Вы́клікаць (выклікаць) дэмаралізацыю. *Д. праціўніка.*

**ДЭМАРАЛІЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Заняпад духу, дысцыпліны, разлажэнне, а таксама разбэшчанасць, упадак маралі.

**ДЭМАРКА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Устанаўленне і абазначэнне на мясцовасці спецыяльнымі знакамі граніц паміж сумежнымі дзяржавамі. **2.** Адмежаванне амярцвелых участкаў тканкі ад здаровых. ‖ *прым.* **дэмаркацы́йны**, -ая, -ае. ○ **Дэмаркацыйная лінія** — 1) лінія, паласа, што раздзяляе войскі праціўнікаў у перыяд перамір'я; 2) лінія, якая падзяляе на зоны акупацыі тэрыторыю пераможанай дзяржавы; 3) у медыцыне: паласа новай (грануляцыйнай) тканкі, якой адмяжоўваецца здаровая, жыццяздольная тканка ад амярцвелай.

**ДЭМА́РШ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дыпламатычнае выступленне (пратэст, просьба або папярэджанне), адрасаванае ўраду якой-н. дзяржавы. *Д. пасла.*

**ДЭМАСКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е *і* **ДЭМАСКІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго-што.* Зняць (знімаць) або парушыць (парушаць) маскіроўку. *Д. аб'ект.* ‖ *звар.* **дэмаскава́цца**, -ку́юся, -ку́ешся, -ку́ецца; -ку́йся *і* **дэмаскі́равацца**, -руюся, -руешся, -руецца; -руйся. ‖ *наз.* **дэмаскава́нне**, -я, *н.*, **дэмаскі́раванне**, -я, *н. і* **дэмаскіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**ДЭМІЛІТАРЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Раззброіць (раззбройваць) дзяржаву, забараніўшы мець ваенную прамысловасць, умацоўваць якую-н. тэрыторыю і трымаць на ёй узброеныя сілы.

**ДЭМІСЕЗО́ННЫ**, -ая, -ае. Пра верхняе адзенне, тканіну: прызначаны для нашэння вясной і ўвосень. *Дэмісезоннае паліто.*

**ДЭМО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па дэмаграфіі.

**ДЭ́МПІНГ**, -у, *м.* (спец.). Адзін са сродкаў канкурэнтнай барацьбы: продаж тавараў на знешніх рынках па заніжаных цэнах. ‖ *прым.* **дэ́мпінгавы**, -ая, -ае. *Дэмпінгавыя цэны.*

**ДЭНАНСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). У міжнародным праве: аб'явіць (аб'яўляць) аб несапраўднасці дагавору, пагаднення і пад. *Д. дагавор.* ‖ *наз.* **дэнансава́нне**, -я, *н. і* **дэнанса́цыя**, -і, *ж.*

**ДЭНАТУРА́Т**, -у, *М* -ра́це, *м.* Этылавы спірт-сырэц са спецыяльнымі дабаўкамі, прызначаны для тэхнічных мэт.

**ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Вярнуць (вяртаць) нацыяналізаваную маёмасць ранейшым уладальнікам. ‖ *наз.* **дэнацыяналіза́цыя**, -і, *ж.*

**ДЭНДРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел батанікі, які вывучае дрэвы і кустовыя расліны. ‖ *прым.* **дэндралагі́чны**, -ая, -ае.

**ДЭНДРА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Батанічны сад (або яго частка), у якім вырошчваюцца калекцыі розных відаў дрэў і кустоў для навукова-даследчых і культурна-асветных мэт.

**ДЭНДРО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па дэндралогіі.

**ДЭНЦІ́Н**, -у, *м.* (спец.). Касцяная тканка зуба.

**ДЭПАЗІ́Т**, -у, *М* -зі́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Грошы або каштоўныя паперы, якія ўносяцца ў крэдытную ўстанову для захавання або са спецыяльнай мэтай. ‖ *прым.* **дэпазі́тны**, -ая, -ае.

**ДЭПАНЕ́НТ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Асоба, якая ўнесла дэпазіт. ‖ *прым.* **дэпане́нцкі**, -ая, -ае.

**ДЭПАНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што* (спец.). **1.** Унесці (уносіць) дэпазіт. **2.** Перадаць (перадаваць) на захаванне. *Д. навуковую працу.* ‖ *наз.* **дэпані́раванне**, -я, *н.*

**ДЭПАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Выгнаць (выганяць), выдаліць (выдаляць) з краіны. *Д. супрацоўніка пасольства.* ‖ *наз.* **дэпарта́цыя**, -і, *ж.*

**ДЭПАРТА́МЕНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У некаторых краінах: аддзел міністэрства, вышэйшай дзяржаўнай установы і пад. *Дзяржаўны д.* **2.** Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Францыі і некаторых іншых краінах. ‖ *прым.* **дэпарта́менцкі**, -ая, -ае.

**ДЭПЕ́ША**, -ы, *мн.* -ы, -пе́ш, *ж.* **2.** Тое, што і *тэлеграма* (уст.). **1.** Спешнае паведамленне (дыпламатычнае, ваеннае і пад.).

**ДЭПО́**, *нескл., н.* Будынак для стаянкі і рамонту лакаматываў, вагонаў і пад. *Лакаматыўнае д. Трамвайнае д. Пажарнае д.* ‖ *прым.* **дэпо́ўскі**, -ая, -ае.

**ДЭПРЭ́СІЯ**, -і, *ж.* **1.** Хваравіта прыгнечаны псіхічны стан чалавека. *Неўратычная д.* **2.** Упадак, застой у гаспадарчым, грамадскім жыцці. *Эканамічная д.* ‖ *прым.* **дэпрэсі́ўны**, -ая, -ае; *наз.* **дэпрэсі́ўнасць**, -і, *ж.*

**ДЭПУТА́Т**, -а, *М* -та́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Выбарны прадстаўнік, член выбарнай дзяржаўнай установы. *Гарадскі Савет дэпутатаў. Д. Нацыянальнага сходу.* **2.** Выбарная асоба, упаўнаважаная выконваць якія-н. даручэнні. ‖ *ж.* **дэпута́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **дэпута́цкі**, -ая, -ае. *Д. мандат.*

**ДЭПУТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Група выбарных ці назначаных асоб для выканання якога-н. даручэння, задання. *Накіраваць дэпутацыю.*

**ДЭ́РАШ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Конь шэрай масці з прымессю іншага колеру.

**ДЭ́РБІ**, *нескл., н.* Род конных іпадромных спаборніцтваў.

**ДЭ́РВІШ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мусульманскі манах, які вядзе аскетычны лад жыцця.

**ДЭРМАТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Галіна медыцыны, якая вывучае хваробы скуры. ‖ *прым.* **дэрматалагі́чны**, -ая, -ае.

**ДЭРМАТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне дэрматалогіі.

**ДЭРМАЦІ́Н**, -у, *м.* Від штучнай скуры з нітрацэлюлозным пакрыццём, якая выкарыстоўваецца для абіўкі мэблі, вокладак кніг і інш. ‖ *прым.* **дэрмаці́навы**, -ая, -ае.

**ДЭРЫВА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Бакавое адхіленне снарадаў і куль пры палёце. **2.** Адвод вады ад галоўнага рэчышча ракі ў бок па канале. **3.** Утварэнне новых слоў ад слова-асновы. ‖ *прым.* **дэрывацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭСА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Высадка войск на тэрыторыю праціўніка. *Зрабіць д.* **2.** Войскі, высаджаныя з караблёў, самалётаў і пад. на тэрыторыю праціўніка для баявых аперацый. *Марскі д. Паветраны д. Высадзіць д.* ‖ *прым.* **дэса́нтны**, -ая, -ае. *Дэсантныя войскі.*

**ДЭСА́НТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Удзельнік дэсантных аперацый. *Парашутысты-дэсантнікі.* **2.** Ваеннаслужачы дэсантных войск.

**ДЭСЕ́РТ**, -у, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Салодкія стравы, садавіна ці цукеркі, якія падаюцца ў канцы абеду. ‖ *прым.* **дэсе́ртны**, -ая, -ае. *Дэсертнае віно.*

**ДЭ́СПАТ**, -а, *М* -паце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вярхоўны правіцель у рабаўладальніцкіх манархіях старажытнага Усходу, які карыстаўся неабмежаванай уладай. **2.** *перан.* Самаўладны, жорсткі, бязлітасны чалавек. *Быць дэспатам у сям'і.*

**ДЭСПАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Неабмежаваная ўлада, самавольства. *Д. самаўладства.* **2.** *перан.* Паводзіны дэспата (у 2 знач.). *Сямейны д.* ‖ *прым.* **дэспаты́чны**, -ая, -ае.

**ДЭСПАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* дэспатызм, дэспатыя. **2.** *перан.* Самаўладны, які не лічыцца з воляй і жаданнямі іншых. *Дэспатычная натура.* ‖ *наз.* **дэспаты́чнасць**, -і, *ж.*

**ДЭСПАТЫ́Я**, -і, *ж.* **1.** Форма неабмежаванай дзяржаўнай улады. **2.** Дзяржава, якой кіруе дэспат (у 1 знач.). ‖ *прым.* **дэспаты́чны**, -ая, -ае.

**ДЭТАЛЁВЫ**, -ая, -ае. Падрабязны, з усімі дэталямі (у 1 знач.). *Дэталёвае даследаванне.* ‖ *наз.* **дэталёвасць**, -і, *ж.*

**ДЭТАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Распрацаваць (распрацоўваць) у дэталях (у 1 знач.), падрабязна ўдакладніць (удакладняць). *Д. план правядзення сесіі.* ‖ *наз.* **дэталіза́цыя**, -і, *ж.*

**ДЭТА́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Невялікая падрабязнасць, прыватнасць. *У праекце ўсе дэталі прадугледжаны.* **2.** Частка механізма, машыны, якая не можа быць разабрана на іншыя, больш простыя і драбнейшыя часткі.

**ДЭТАНА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.) Прыстасаванне з выбуховым рэчывам, якое выклікае дэтанацыю асноўнага зарада. *Капсуль-д.* ‖ *прым.* **дэтана́тарны**, -ая, -ае.

**ДЭТАНА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Імгненны выбух рэчыва, выкліканы выбухам другога рэчыва або ўдарам. **2.** Хуткае і няпоўнае згаранне паліва ў рухавіку ўнутранага згарання. *Д. паліва.* ‖ *прым.* **дэтанацы́йны**, -ая, -ае.

**ДЭТЭ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыстасаванне ў радыёпрыёмніку для пераўтварэння ваганняў высокай частаты ў ваганні нізкай частаты. **2.** Прылада для выяўлення радыеактыўнага ці цеплавога выпраменьвання. *Д. ядзерных выпраменьванняў.* ○ **Дэтэктар хлусні** — спецыяльнае прыстасаванне для запісу фізіялагічных паказчыкаў таго, каго дапытваюць, або падвыпрабавальнага. ‖ *прым.* **дэтэ́ктарны**, -ая, -ае. ○ **Дэтэктарны прыёмнік** — найпрасцейшы радыёпрыёмнік, у якім прынятыя сігналы пераўтвараюцца ў гукавыя пры дапамозе крышталічнага дэтэктара.

**ДЭТЭКТЫ́Ў**, -ты́ва, *мн.* -ты́вы, -ты́ваў, *м.* **1.** Спецыяліст па расследаванні крымінальных злачынстваў, агент вышукной паліцыі. **2.** Літаратурны твор або кінафільм, у якіх адлюстроўваецца раскрыццё таямніц, звязаных звычайна з забойствам. ‖ **дэтэкты́ўны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Д. раман.*

**ДЭТЭРМІНІ́ЗМ**, -у, *м.* Вучэнне аб заканамернасці і прычыннай абумоўленасці ўсіх з'яў прыроды і грамадства. ‖ *прым.* **дэтэрміні́сцкі**, -ая, -ае.

**ДЭ-ФА́КТА**, *прысл.* (кніжн.). Фактычна, на справе, сапраўды; *проціл.* дэ-юрэ.

**ДЭФАРМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Змяніць (змяняць) форму чаго-н., памер якога-н. цела або яго частак уздзеяннем знешніх сіл. ‖ *звар.* **дэфармава́цца**, -му́юся, -му́ешся, -му́ецца; -му́йся. ‖ *наз.* **дэфарма́цыя**, -і, *ж.*

**ДЭФЕ́КТ**, -у, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Недахоп, загана. *Праект з вялікім дэфектам.* ‖ *прым.* **дэфе́ктны**, -ая, -ае. *Д. экзэмпляр кнігі; наз.* **дэфе́ктнасць**, -і, *ж.*

**ДЭФЕКТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая вывучае заканамернасці і асаблівасці развіцця дзяцей з фізічнымі і псіхічнымі недахопамі і пытанні іх навучання і выхавання. ‖ *прым.* **дэфекталагі́чны**, -ая, -ае.

**ДЭФЕКТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па дэфекталогіі.

**ДЭФЕКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які мае фізічныя або псіхічныя недахопы; ненармальны. *Дэфектыўнае дзіця.* ‖ *наз.* **дэфекты́ўнасць**, -і, *ж.*

**ДЭФЕНЗІ́ВА**, -ы, *ж.* Палітычная паліцыя ў Польшчы ў 1918—1939 гг., а таксама назва органаў контрразведкі.

**ДЭФІЛЕ́**[1], *нескл., н.* (спец.). Цясніна або вузкі, цесны праход паміж узвышшамі, вадаёмамі. *Горнае д.*

**ДЭФІЛЕ́**[2], *нескл., н.* Дэманстрацыя мадэлей адзення на подыуме.

**ДЭФІЛІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* **1.** Урачыста праходзіць на парадах, дэманстрацыях і пад. **2.** Хадзіць туды-сюды, прагульвацца.

**ДЭФІНІ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). Дакладнае лагічнае азначэнне таго ці іншага паняцця, якое ўключае найбольш істотныя яго прыкметы. *Слоўнікавая д.*

**ДЭФІ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кароткая злучальная рыска паміж двума словамі, а таксама знак пераносу ці знак скарачэння ў выглядзе такой рыскі.

**ДЭФІЦЫ́Т**, -у, *М* -цы́це, *м.* **1.** Перавышэнне расходаў над даходамі. *Павелічэнне бюджэтнага дэфіцыту.* **2.** Недахоп чаго-н., нястача ў чым-н. *Гэтыя тавары цяпер у дэфіцыце.*

**ДЭФІЦЫ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прыносіць дэфіцыт (у 1 знач.); стратны. *Дэфіцытнае прадпрыемства.* **2.** Які не задавальняе попыту; недастатковы ў колькасных адносінах. *Дэфіцытныя тавары.* ‖ *наз.* **дэфіцы́тнасць**, -і, *ж.*

**ДЭХКА́НІН**, -а, *мн.* дэхка́не *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) дэхка́ніны, -ка́н, *м.* Селянін у Сярэдняй Азіі. ‖ *ж.* **дэхка́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **дэхка́нскі**, -ая, -ае.

**ДЭЦЫ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. адна дзясятая, напр.: *дэцыбел, дэцылітр, дэцыметр.*

**ДЭЦЫБЕ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адзінка вымярэння велічыні гуку.

**ДЭЦЫМЕ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адзінка даўжыні, роўная адной дзясятай частцы метра. ‖ *прым.* **дэцыметро́вы**, -ая, -ае.

**ДЭЦЭНТРАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Зрабіць (рабіць) сістэму кіравання менш цэнтралізаванай, аддаць частку паўнамоцтваў мясцовым органам кіравання. *Д. кіраўніцтва.* ‖ *наз.* **дэцэнтраліза́цыя**, -і, *ж.*

**ДЭШЫФРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што.* Разабраць (разбіраць) напісанае шыфрам, тайнапісам або на якой-н. невядомай старажытнай мове; расшыфраваць (расшыфроўваць). *Д. рукапіс.* ‖ *наз.* **дэшыфро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.*

**ДЭ-Ю́РЭ**, *прысл.* (кніжн.). Юрыдычна, фармальна, на падставе закона; *проціл.* дэ-факта.

**Д'Я́БАЛ**, -бла, *мн.* -блы, -блаў, *м.* **1.** У рэлігійным уяўленні: злы дух, чорт, сатана, які супрацьстаіць Богу. **2.** Ужыв. як лаянкавае слова, а таксама ў некаторых выразах. *Куды цябе д. нясе?! Якога д'ябла я там не бачыў?* ‖ *прым.* **д'я́бальскі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**Д'Я́БАЛЬСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* д'ябал. **2.** Незвычайны, вельмі моцны. *Д'ябальская спёка.*

**Д'Я́БАЛЬШЧЫНА**, -ы, *ж.* (разм.). Пра незвычайны збег акалічнасцей, блытаніну ў чым-н., што можа быць патлумачана ўмяшаннем д'ябла, нячыстай сілы. *Што за д.!*



**ЕВАНГЕЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Укладальнік Евангелля. **2.** Член абшчыны евангельскіх хрысціян. ‖ *ж.* **евангелі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 2 знач.). ‖ *прым.* **евангелі́сцкі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ЕВАНГЕЛІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да рэлігійных пратэстанцкіх абшчын, што ў сваім веравучэнні кіруюцца толькі тэкстамі Евангелля. *Евангелічная царква.*

**ЕВА́НГЕЛЛЕ**, -я, *н.* (з вялікай літары). **1.** Частка Бібліі, агульная назва першых чатырох кніг Новага Запавету пра зямное жыццё і вучэнне Ісуса Хрыста (з'яўляецца асновай хрысціянскага веравучэння). *Кананічнае Е.* **2.** *мн.* -і, -яў. Кожная з чатырох кніг Новага Запавету, напісаных, паводле царкоўнай традыцыі, вучнямі Ісуса Хрыста і іх паслядоўнікамі. *Е. ад Марка. Старонка Евангелля ад Матфея.* ‖ *прым.* **ева́нгельскі**, -ая, -ае. *Е. тэкст.*

**ÉГЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Паляўнічы-прафесіянал; спецыяліст па арганізацыі палявання, ахове і ўзнаўленні фаўны. **2.** Салдат з асобых стралковых (егерскіх) палкоў у некаторых еўрапейскіх арміях. ‖ *прым.* **éгерскі**, -ая, -ае.

**ЕГІПЦЯ́НЕ**, -я́н, *адз.* егіпця́нін, -а, *м.* Асноўнае насельніцтва Егіпта. ‖ *ж.* **егіпця́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **егі́пецкі**, -ая, -ае. *Егіпецкія піраміды.*

**ÉДКІ**, -ая, -ае. **1.** Які раз'ядае, разбурае што-н. хімічна. *Едкая фарба.* **2.** Які выклікае моцнае фізічнае раздражненне. *Е. дым.* **3.** *перан.* З'едлівы, колкі. *Едкая заўвага.* ‖ *наз.* **éдкасць**, -і, *ж.*

**ÉДНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Адзінства, згуртаванасць. *Непарушная е.* **2.** Агульнасць, супольнасць. *Е. паходжання.*

**ÉЖА**, -ы, *ж.* Усё тое, што ядуць; прадукты харчавання. *Здаровая е. Мясная е.*

**ЕЗДАВЫ́**, -áя, -óе. **1.** Які прызначаны для язды ў запрэжцы. *Ездавыя сабакі.* **2.** *у знач. наз.* **ездавы́**, -óга, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.* Салдат, які кіруе коннай запрэжкай.

**ÉЗДЗІЦЬ**, éзджу, éздзіш, éздзіць; *незак.* **1.** Рухацца ў розных напрамках на якім-н. транспарце. *Е. на трамваі. Е. на веласіпедзе.* **2.** Бываць дзе-н., наведваць каго-н., прыязджаючы. *Е. у госці.* **3.** Умець кіраваць якімі-н. сродкамі перамяшчэння. *Е. на матацыкле.* **4.** Не мець устойлівасці, рухацца, соўгацца па чым-н. (разм.). *Шкло ездзіць у аправе.* ‖ *наз.* **язда́**, -ы́, *ДМ* -дзé, *ж.* (да 1—3 знач.).

**ЕЗУІ́Т**, -а, *М* езуіце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Манах — член каталіцкага манаскага ордэна «Таварыства Ісуса». **2.** *перан.* Хітры, крывадушны, каварны чалавек. ‖ *ж.* **езуітка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 2 знач.). ‖ *прым.* **езуі́цкі**, -ая, -ае. *Е. ордэн.*

**ЕЗУІ́ЦТВА**, -а, *н.* Крывадушнасць, хітрасць як сродкі для дасягнення мэты. *Такога езуіцтва ад яго ніхто не чакаў.*

**ЕКАТА́ЦЬ**, екачу́, якóчаш, якóча; екачы́; *незак.* (разм.). **1.** Голасна, працягла крычаць ад моцнага болю. **2.** Скавытаць (пра жывёл). *У будцы екатаў сабака.* ‖ *наз.* **еката́нне**, -я, *н.*

**ЕКЦЯННЯ́**, -і́, *ж.* Шэраг малітвенных прашэнняў, якія гаворацца дыяканам ці святаром пры богаслужэнні ад імя вернікаў. *Вялікая е.*

**ÉЛАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** *гл.* елка. **2.** *у знач. прысл.* **éлачкай.** Пра ўзор, размяшчэнне чаго-н. *Вышываць елачкай (у елачку). Падымацца на лыжах елачкай.*

**ÉЛКА**, -і, *ДМ* éлцы, *мн.* -і, éлак, *ж.* Хвойнае вечназялёнае дрэва з конусападобнай кронай. ‖ *памянш.-ласк.* **éлачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **ялóвы**, -ая, -ае.

**ЕЛКАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Крыху ёлкі, гаркаваты на смак. *Пахла елкаватым салам.* ‖ *наз.* **елкава́тасць**, -і, *ж.*

**ÉЛЬНІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м., зб.* **1.** Яловы лес. *Каля ракі рос е.* **2.** Ссечаныя яловыя лапкі або дрэвы. *Дарога ўслана ельнікам.* ‖ *памянш.-ласк.* **éльнічак**, -чку, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **éльнічны**, -ая, -ае.

**ÉМЕНЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Асноўнае насельніцтва Емена. ‖ *ж.* **éменка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **éменскі**, -ая, -ае.

**ЕНК**, éнку, *мн.* -і, -аў, *м.* Працяглы жаласны стогн, выкліканы болем або вялікім горам. *Працяглы е. вырваўся з грудзей.*

**ÉНЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* **1.** Жаласна стагнаць ад болю, пакуты і пад. *Хлопчык енчыў на ложку.* **2.** *перан.* Назойліва, надакучліва прасіць аб чым-н. (разм.). ‖ *зак.* **выенчыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны (да 2 знач.). ‖ *наз.* **éнчанне**, -я, *н.*

**ЕПА́РХІЯ**, -і, *ж.* Царкоўна-адміністрацыйная тэрытарыяльная адзінка, якой кіруе епіскап (архірэй). ‖ *прым.* **епархія́льны**, -ая, -ае.

**ЕПІ́СКАП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вышэйшы сан у хрысціянскай царкве, а таксама асоба, якая мае гэты сан; архірэй. ‖ *прым.* **епі́скапскі**, -ая, -ае.

**ЕПІТРАХІ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Частка абрадавага адзення праваслаўнага і каталіцкага святара, якая носіцца на шыі і мае выгляд доўгага шырокага палотнішча з крыжамі.

**ЕПІТЫ́М'Я**, -і, *ж.* Род царкоўнага пакарання (пост, працяглыя малітвы) за парушэнне рэлігійных норм. *Налажыць епітым'ю.*

**ÉРАСЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** У рэлігіі: адступленне ад афіцыйных царкоўных догмаў. *Барацьба з ерассю.* **2.** *перан.* Бязглуздзіца, лухта (разм.). *Несці е.* ‖ *прым.* **ерэты́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЕРЫХО́НСКІ**, -ая, -ае. У выразе: **ерыхонская труба** — пра вельмі гучны голас.

**ЕРЭТЫ́К**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* Паслядоўнік ерасі (у 1 знач.). ‖ *ж.* **ерэты́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **ерэты́чны**, -ая, -ае.

**ЕСАВУ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Казацкі афіцэрскі чын, роўны чыну капітана ў пяхоце і ротмістра ў кавалерыі, а таксама асоба, якая мела гэты чын. ‖ *прым.* **есаву́льскі**, -ая, -ае.

**ÉСЦІ**, ем, ясі́, есць; ядзі́м, ясцé, яду́ць; еў, éла; еш; *незак.* **1.** *каго-што* і *без дап.* Ужываць ежу. *Е. яблыкі. Чаго не ясі, таго ў рот не нясі* (прыказка). **2.** толькі *ў інф.* (у спалучэнні з дзеясловам). Ежа, харч. *Наварыць е. Хацець е.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Разбураць хімічна, раз'ядаць. *Іржа есць жалеза.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выклікаць пякучы боль, раздражняць (пра дым і пад.). *Густы дым еў вочы.* **5.** *перан., каго (што).* Не даваць спакою, мучыць (пра сумленне, тугу, боль). *Сэрца маё есць туга.* **6.** *перан., каго (што).* Папракаць,назаляць, не даваць спакою (разм.). *Кожны дзень грызуцца, ядуць адзін аднаго.* ◊ **Дарэмна хлеб есці** (разм.) — не прыносіць ніякай карысці, гультаяваць. **Есці вачамі** (разм.) — пільна ўглядацца, не адрываючы позірку. **Есці, як не ў сябе** (разм.) — прагна есці. **Пасаліўшы, есці можна** (разм.) — пра што-н. пасрэднае, цярпімае. **Поедам есці** (разм., неадабр.) — бесперапынку папракаць. ‖ *зак.* **паéсці**, паéм, паясі́, паéсць; паядзі́м, паясцé, паяду́ць; паéш (да 1 знач.: ужыць для ежы) *і* **з'éсці**, з'ем, з'ясі́, з'есць; з'ядзі́м, з'ясцé, з'яду́ць; з'еш; з'éдзены (да 1, 3, 5 і 6 знач.). ‖ *наз.* **яда́**, -ы́, *ДМ* ядзé, *ж.* (да 1 знач.). *У час яды.*

**ÉЎНУХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Кастрыраваны слуга пры гарэме.

**ЕЎРАБА́ЧАННЕ**, -я, *н.* (з вялікай літары). Папулярны еўрапейскі конкурс эстраднай песні.

**ЕЎРАПЕІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Перабудаваць (перабудоўваць) на еўрапейскі лад, узор. ‖ *звар.* **еўрапеізава́цца**, -зу́юся, -зу́ешся, -зу́ецца; -зу́йся. ‖ *наз.* **еўрапеіза́цыя**, -і, *ж.*

**ЕЎРАПЕ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -пéец, -пéйца, *м.* Жыхары Еўропы. ‖ *ж.* **еўрапе́йка**, -і, *ДМ* -пéйцы, *мн.* -і, -пéек. ‖ *прым.* **еўрапе́йскі**, -ая, -ае.

**ЕЎРАПЕО́ІДНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **еўрапеоідная раса** (спец.) — раса людзей са светлай скурай, мяккімі хвалістымі валасамі, вузкім носам і іншымі адзнакамі.

**ЕЎСТА́ХІЕЎ**. У выразе: **еўстахіева труба** (спец.) — канал, што злучае насаглотку з поласцю сярэдняга вуха, слыхавая труба.

**ЕЎХАРЫ́СТЫЯ**, -і, *ж.* Тое, што і *прычашчэнне.* ‖ *прым.* **еўхарысты́чны**, -ая, -ае. *Еўхарыстычная малітва.*

**ÉХАЦЬ**, éду, éдзеш, éдзе; éдзем, éдзеце, éдуць; едзь; *незак.* **1.** Рухацца куды-н. пры дапамозе якіх-н. сродкаў перамяшчэння. *Е. на электрычцы. Е. у машыне. Е. вярхом.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Рухацца (пра сродкі перамяшчэння). *Едзе аўтамабіль.* **3.** Накіроўвацца куды-н. пры дапамозе сродкаў перамяшчэння; ад'язджаць. *Е. на працу. Е. за мяжу.* **4.** Ссоўвацца, саслізгваць са свайго месца. *На мокрай сцежцы ногі едуць убакі.* **5.** *перан., на кім-чым.* Выкарыстоўваць у сваіх інтарэсах, для сваёй выгады (разм.). *Ён едзе на памочніках.*



**ЁГ**, -а, *мн.* ёгі, -аў, *м.* Паслядоўнік ёгі. *Гімнастыка па сістэме ёгаў.* ‖ *прым.* **ёгаўскі**, -ая, -ае (разм.).

**ЁГА**, -і, *ж.* **1.** У Індыі: рэлігійна-філасофскае вучэнне, у якім распрацавана асобая сістэма прыёмаў і метадаў самапазнання, што дазваляе чалавеку кіраваць псіхічнымі і фізіялагічнымі функцыямі свайго арганізма. **2.** Сістэма фізічных практыкаванняў, выпрацаваная паслядоўнікамі гэтага вучэння. *Займацца ёгай.*

**ЁГУРТ**, -у, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў *м.* Кісламалочны прадукт з вітаміннымі і фруктовымі дабаўкамі, які па кансістэнцыі нагадвае заварны сметанковы крэм. ‖ *прым.* **ёгуртны**, -ая, -ае.

**ЁД**, -у, *М* ёдзе, *м.* **1.** Хімічны элемент, крышталічнае рэчыва цёмна-шэрага колеру, якое здабываецца галоўным чынам з марскіх водарасцей. **2.** Спіртавы раствор гэтага рэчыва, ужыв. ў медыцыне. ‖ *прым.* **ёдны**, -ая, -ае *і* **ёдзісты**, -ая, -ае. *Ёдны раствор. Ёдзісты прэпарат.*

**ЁДАФО́РМ**, -у, *м.* Прэпарат ёду — крышталічны жоўты парашок, які выкарыстоўваецца ў медыцыне як антысептычны сродак.

**ЁКАТ**, -у, *М* ёкаце, *м.* Моцны крык з плачам.

**ЁКАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* (разм.). **1.** Утвараць кароткі і адрывісты гук. **2.** Раптоўна сціскацца, заміраць ад страху, хвалявання (пра сэрца). *Ёкае сэрца.* ‖ *аднакр.* **ёкнуць**, -не. ‖ *наз.* **ёканне**, -я, *н.*

**ЁЛКА**, -і, *ДМ* ёлцы, *мн.* -і, ёлак, *ж.* **1.** Тое, што і *елка.* **2.** Елка, упрыгожаная да свята Новага года і Каляд. *Навагодняя ё.* **3.** Пра навагодняе свята для дзяцей з песнямі, танцамі і гульнямі вакол упрыгожанай ёлкі. *Звадзіць сына на ёлку.* ‖ *памянш.-ласк.* **ёлачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **ёлачны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.). *Ёлачныя цацкі.*

**ЁЛКІ**, -ая, -ае. Прагорклы, з рэзкім непрыемным пахам (пра нясвежыя тлушчы). *Ёлкае сала.* ‖ *наз.* **ёлкасць**, -і, *ж.*

**ЁЛКНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; *незак.* Станавіцца ёлкім. *Сала пачало ё.*

**ЁЛУП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., лаянк.). Бесталковы, тупы чалавек; дурань, асталоп.

**ЁЛУПЕНЬ**, -пня, *мн.* -пні, -пняў, *м.* (разм., лаянк.). Тое, што і *ёлуп.*

**ЁМІСТАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* ёмісты. **2.** Пасудзіна, рэзервуар для вадкіх, сыпучых і газападобных цел. *Напоўніць ё. газам.*

**ЁМІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны змясціць у сабе вялікую колькасць чаго-н. *Ёмістая пасудзіна.* **2.** *перан.* З багатым унутраным зместам, сэнсам. *Ё. характар героя.* ‖ *наз.* **ёмістасць**, -і, *ж.* *Ё. рэзервуара. Ё. фразы. Ё. вобразных сродкаў.*

**ЁМКА**, *прысл.* Зручна, добра. *Мне тут ё. Ё. ўладкавацца.*

**ЁМКІ**, -ая, -ае. **1.** Зручны ў карыстанні (пра рэч). *Ё. інструмент.* **2.** Зграбны, добра складзены (пра чалавека; разм.). ‖ *наз.* **ёмкасць**, -і, *ж.*

**ЁН**, яго́, яму́, ім, аб ім, *м.;* яна́, яе́, ёй, яе́, ёй (ёю), аб ёй, *ж.;* яно́, яго́, яму́, яго́, ім, аб ім, *н., мн.* яны́, іх, ім, іх, імі́, аб іх; *займ. асаб. 3 ас. адз.* **1.** Указвае на прадмет гаворкі (выключаючы суразмоўцаў). **2.** толькі *Р.* Ужыв. ў знач. прыналежнага займенніка. *Яго кніга.* **3.** У спалучэнні з часціцай «вось» набывае ўказальны характар. *Вось ён — бацькоўскі дом!*

**ЁРЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Неспакойна сядзець, соўгаючыся з месца на месца. *Ё. на крэсле.* ‖ *наз.* **ёрзанне**, -я, *н.*

**ЁРШ**[1], ярша́, *мн.* яршы́, яршо́ў, *м.* **1.** Невялікая прэснаводная касцістая рыба сямейства акунёвых з калючымі плаўнікамі. **2.** Шчотка для мыцця бутэлек, посуду і пад. ‖ *прым.* **яршо́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЁРШ**[2], ярша́, *м.* (разм.). Сумесь гарэлкі з півам, якая хутка і моцна ап'яняе.

**ЁСЦЬ**[1]. **1.** Форма цяпер. часу ўсіх асоб адз. і мн. ліку дзеяслова быць; існуе, маецца ў наяўнасці. *Ё. сябры. Ё. спадзяванне.* **2.** Служыць звязкай у састаўным іменным выказніку. *Што ё. сумленне? Закон ё. закон. Гаспадарка ё. мая апора.* ◊ **Што ёсць духу** (разм.) — 1) вельмі хутка (бегчы, ехаць і пад.); 2) вельмі моцна (крычаць і пад.).

**ЁСЦЬ**[2], *выкл.* Адказ падначаленага (у арміі, на флоце), які азначае: каманду зразумеў, прыняў да выканання.

**ЁЎНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Збудаванне для сушкі снапоў перад малацьбой; асець. ‖ *прым.* **ёўневы**, -ая, -ае.



**Ж** *гл.* жа.

**ЖА**, (пасля галосных) **Ж.** **1.** *злуч. супрацыўны.* Злучае сказы з адносінамі супрацьпастаўлення. *Мне гаворыць адно, сам жа робіць другое.* **2.** *злуч. далучальны.* Ужыв. для далучэння сказаў з паведамленнем дадатковага або тлумачальнага зместу. *Вядзі нас, ты ж ведаеш дарогу.* **3.** *часц. ўзмацн.* Ужыв. для ўзмацнення значэння папярэдняга слова або сэнсу таго, што выказваецца. *З кім жа ён застанецца?* **4.** *часц.* Ужыв. пасля займеннікаў і прыслоўяў, каб падкрэсліць падабенства, супадзенне, аднолькавасць. *Яны прыйшлі з аднаго і таго ж мястэчка. Той жа. Тады ж.*

**ЖА́БА**, -ы, *мн.* -ы, жаб, *ж.* **1.** Бясхвостая земнаводная жывёла з доўгімі заднімі канечнасцямі, бугрыстай, часта барадаўчатай слізкай скурай бурага, шэрага або зялёнага колеру, якая водзіцца ў вільготных мясцінах. *Травяная ж. Ж. азёрная.* **2.** Тое, што і *рапуха.* ‖ *памянш.* **жа́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* ‖ *прым.* **жа́бін**, -а. *Жабіна ікра.* ○ **Грудная жаба** — бытавая назва стэнакардыі. ◊ **Пнецца як жаба на купіну** (разм., пагард.) — лезці куды-н. напралом з мэтай дамагчыся свайго.

**ЖАБІ́НЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да жабы, уласцівы ёй. *Не сціхаў ж. канцэрт.*

**ЖА́БНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Пасудзіна для ўтрымання паддоследных жаб у лабараторыях.

**ЖАБО́**, *нескл., н.* Аздоба з карунак або лёгкай тканіны ў выглядзе брыжоў (гафрыроўкі) на грудзях або каля каўняра ў жаночай блузцы, сукенцы ці мужчынскай сарочцы.

**ЖАБРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак.* **1.** Прасіць міласціну. **2.** Пазычаць што-н., не маючы свайго (разм.). *Трэбаісці ж. плуга ў суседзяў. Не ўмееш шанаваць — ідзі ж.* (прыказка). ‖ *зак.* **вы́жабраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны. ‖ *наз.* **жабрава́нне**, -я, *н.*

**ЖАБРА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Вельмі бедны, той, хто жыве з міласціны; старац. ‖ *ж.* **жабра́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ЖАБРА́ЦКІ**, -ая, -ае. **1.** Такі, як у жабрака, які ўласцівы, належыць яму. *Жабрацкая торба. Жабрацкае жыццё.* **2.** *перан.* Вельмі бедны, мізэрны. *Ж. надзел.*

**ЖАБРА́ЦТВА**, -а, *н.* **1.** Збіранне міласціны як сродак існавання; жабрацкае становішча. *Давесці да ж.* **2.** *зб.* Жабракі.

**ЖАБРА́ЧЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *жабрацкі.*

**ЖАБРА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* Тое, што і *жабраваць.*

**ЖА́БРЫ**, -аў, *адз.* жа́бра, -ы, *ж.* Органы дыхання рыб і некаторых водных жывёлін. ◊ **Узяць за жабры** *каго-н.* — прымусіць да чаго-н.; паставіць у бязвыхаднае становішча. ‖ *прым.* **жа́бравы**, -ая, -ае.

**ЖАБУРЫ́ННЕ**, -я, *н., зб.* Жабіна ікра.

**ЖАБЯНЯ́** *і* **ЖАБЯНЁ**, -няці, *мн.* -няты, -ня́т, *н.* Дзіцяня жабы (у 1 і 2 знач.).

**ЖАВА́ЛА**, -а, *мн.* -ы, жава́л *і* -аў, *н.* (спец.). Верхнія пярэднія сківіцы ў ротавым апараце ракападобных і насякомых.

**ЖАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для жавання. *Ж. апарат. Жавальныя мышцы.*

**ЖА́ВАРАНАК** *і* **ЖА́ЎРАНАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Пеўчая птушка атрада вераб'іных. ‖ *прым.* **жа́варанкавы**, -ая, -ае. *Сямейства жаваранкавых* (наз.).

**ЖАВА́ЦЬ**, жую́, жуе́ш, жуе́; жуём, жуяце́, жую́ць; жуй; жава́ны; *незак., што.* **1.** Размінаць ежу або што-н. зубамі. *Ж. кавалак хлеба.* **2.** *перан.* Доўга і нудна гаварыць, разбіраць адно і тое ж (разм.). *Ж. пытанне цэлую гадзіну.* ‖ *наз.* **жава́нне**, -я, *ж.*

**ЖАВЕ́ЛЬ**, -вялю́, *м.* Хлорысты раствор, едкая зеленавата-жоўтая вадкасць, якая выкарыстоўваецца для адбелкі тканін. ‖ *прым.* **жаве́левы**, -ая, -ае. *Жавелевая вада.*

**ЖАДА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Цяга да ажыццяўлення чаго-н., унутранае імкненне. *Гарэць жаданнем. Ж. перамогі.* **2.** Прадмет захаплення, мары і пад. *Тэатральная сцэна — вось яго ж.*

**ЖАДА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, якога чакаюць, да якога імкнуцца. *Ж. госць. Жаданыя пакупкі.* **2.** Любімы, дарагі. *Мой адзіны, мой ж. чалавек!*

**ЖАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., чаго, з інф.* або *са злуч.* «каб». **1.** Хацець што-н. здзейсніць, зрабіць, займець. *Жадаю бачыць сына.* **2.** *каму-чаму* і *з інф.* Выказваць якія-н. пажаданні, зычыць. *Жадаю вам здароўя.* ‖ *зак.* **пажада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЖАДА́ЮЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Ахвотнік. *На экскурсію многа жадаючых.*

**ЖАДЗЁН**, -дна́, -дно́, *мн.* -дны́, *чаму* (разм.). Які церпіць нястачу ў самым неабходным; ахвочы да чаго-н. *Ён ж. скарынцы хлеба.* ◊ **Жадзён на вока** (разм., неадабр.) — пра зайздроснага, сквапнага чалавека.

**ЖАДЛІ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Зайздросны, прагны. ‖ *наз.* **жадлі́васць**, -і, *ж.*

**ЖАДУ́НКІ**, -аў (разм.). Дзіўныя жаданні, капрызы.

**ЖАЗЛО́**, -а́, *мн.* жэ́злы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) жазлы́, жэ́злаў, *н.* **1.** Асобай формы, звычайна ўпрыгожаная палка, посах, якія служылі сімвалам улады, ганаровага становішча, звання (уст.). *Маршальскае ж.* **2.** Кароткая палка ў руках рэгуліроўшчыка вулічнага руху (спец.). **3.** Металічны стрыжань з дужкай, які выкарыстоўваецца пры рэгуліроўцы руху цягнікоў. ‖ *прым.* **жазло́вы**, -ая, -ае (да 3 знач.). *Жазловая сістэма рэгулявання руху цягнікоў.*

**ЖАКА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Куля для стральбы з гладкаствольнага паляўнічага ружжа. ‖ *прым.* **жака́нны**, -ая, -ае.

**ЖАКЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Прафесійны яздок на конных скачках. **2.** У цырку — артыст, які на неасядланым кані выконвае акрабатычныя трукі. ‖ *прым.* **жаке́йскі**, -ая, -ае.

**ЖАКЕ́Т**, -а, *М* -ке́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кароткае верхняе аддзенне, пераважна жаночае, пашытае ў талію. ‖ *памянш.-ласк.* **жаке́цік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **жаке́тны**, -ая, -ае.

**ЖАКЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Тое, што і *жакет* (разм.). **2.** Верхняе кароткае мужчынскае адзенне; пінжак (уст.). ‖ *прым.* **жаке́тны**, -ая, -ае.

**ЖАЛАБАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Які мае форму жолаба. *Жалабаватая дошка.*

**ЖАЛАБО́ВЫ** *гл.* жолаб.

**ЖАЛАБО́К** *гл.* жолаб.

**ЖА́ЛАВАННЕ**, -я, *н.* (уст.). Грашовае ўзнагароджанне за службу, працу; заработная плата. *Павышэнне жалавання.*

**ЖА́ЛАСЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Схільны да жаласці, спачування, міласэрнасці. *Жаласлівыя людзі.* **2.** Сумны, кранальны. *Жаласлівыя песні.* ‖ *ж.* **жа́ласлівасць**, -і, *ж.*

**ЖА́ЛАСНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто праяўляе жаласць да каго-, чаго-н. ‖ *ж.* **жа́ласніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **жа́ласніцкі**, -ая, -ае.

**ЖА́ЛАСНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выражае смутак, тугу. *Ж. позірк.* **2.** Поўны суму, жалобы; журботны. *Жаласныя гукі.* ‖ *наз.* **жа́ласнасць**, -і, *ж.*

**ЖАЛЕ́ЗА**, -а, *н.* **1.** Хімічны элемент, цяжкі коўкі метал серабрыстага колеру, асноўная састаўная частка чыгуну і сталі. *Каваць ж.* **2.** Вырабы з гэтага металу. *Дахавае ж.* **3.** Жалезістыя рэчывы як лячэбны сродак. *У яблыках шмат жалеза.* ‖ *прым.* **жале́зны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Жалезныя вароты.*

**ЖАЛЕЗА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. жалеза, напр.: *жалезарудны, жалезабетон, жалезавугляродзісты.*

**ЖАЛЕЗАБЕТО́Н**, -у, *м.* **1.** Будаўнічы матэрыял, спалучэнне бетону і стальной арматуры. **2.** *зб.* Канструкцыі, вырабы з такога матэрыялу. *Зборны ж.* ‖ *прым.* **жалезабето́нны**, -ая, -ае. *Жалезабетонная канструкцыя.*

**ЖАЛЕ́ЗЗЕ**, -я, *н., зб.* (разм.). Непатрэбныя жалезныя рэчы, жалезны лом. *Усюды валялася рознае ж.*

**ЖАЛЕ́ЗІНА**, -ы, *мн.* -ы, -зін, *ж.* (разм.). Кавалак жалеза; непатрэбная рэч з жалеза.

**ЖАЛЕ́ЗІСТЫ**, -ая, -ае. Які змяшчае ў сабе жалеза. *Ж. кварцыт.*

**ЖАЛЕ́ЗНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* жалеза. **2.** Які змяшчае ў сабе многа жалеза. *Жалезная руда.* **3.** *перан.* Дужы, моцны. *Жалезныя мышцы. Жалезнае здароўе.* **4.** *перан.* Цвёрды, неадступны, стойкі. *Жалезная воля. Жалезная дысцыпліна.* ○ **Жалезны век** — эпоха ў развіцці чалавецтва, калі чалавек пачаў выкарыстоўваць жалеза ў якасці асноўнага матэрыялу для вырабу прылад працы. ◊ **Наесціся жалезнага бобу** (разм.) — набрацца цярпення, праявіць упартасць.

**ЖАЛЕ́ЙКА**, -і, *ДМ* -ле́йцы, *мн.* -і, -ле́ек, *ж.* Беларускі і рускі народны інструмент у выглядзе дудкі з раструбамі. ‖ *прым.* **жале́йкавы**, -ая, -ае.

**ЖА́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; жа́лься; *незак.* **1.** *на каго-чаго* або *са злуч.* «што». Выказваць жальбу, нездаволенасць; бедаваць. *Ж. на боль у грудзях.* **2.** *на каго (што).* Скардзіцца, наракаць на каго-н.; падаваць скаргу. *Ж. на суседа.* ‖ *зак.* **пажа́ліцца**, -люся, -лішся, -ліцца.

**ЖАЛО́БА**, -ы, *ж.* **1.** Смутак з прычыны чыёй-н. смерці, народнага гора, бедства; выражаецца ў адмене гулянак, забаўляльных відовішчаў. *Краіна ў жалобе.* **2.** Чорнае адзенне, павязка, вуаль і пад. як сімвал смутку. *Насіць жалобу.* ‖ *прым.* **жало́бны**, -ая, -ае. *Ж. мітынг.*

**ЖАЛО́БНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* жалоба. **2.** Сумны, тужлівы, маркотны. *Ж. марш. Нешта сумнае і жалобнае чулася ў курлыканні журавоў.* ‖ *наз.* **жало́бнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ЖАЛО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (спец.). Пасудзіна, што выкарыстоўваецца для пад'ёму вадкасці, пяску і буравой гразі пры бурэнні свідравін. ‖ *прым.* **жало́начны**, -ая, -ае.

**ЖАЛУ́ДАЧАК**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* Аддзел сэрца, які сваімі скарачэннямі абумоўлівае рух крыві па крывяноснай сістэме. *Правы, левы ж.* ‖ *прым.* **жалу́дачкавы**, -ая, -ае (спец.).

**ЖАЛУДО́ВЫ** *гл.* жолуд.

**ЖАЛЬ**, -ю, *м.* **1.** Пачуццё спагады, жаласці, выкліканае чыім-н. няшчасцем, пакутай. *Не ведаць жалю.* **2.** Пачуццё горычы, смутку з прычыны страты каго-, чаго-н. *Мацярынскі ж.* **3.** Засмучэнне, шкадаванне. *Гаварыць з жалем аб здарэнні.* ◊ **На (вялікі) жаль** (у знач. пабочн. сл.) — ужыв., каб выказаць шкадаванне з прычыны чаго-н.

**ЖА́ЛЬБА**, -ы, *ж.* **1.** Смутак, туга, шкадаванне. *Ж. сэрца.* **2.** Скарга, нараканне. *Затоеная ж. падступала да горла.*

**ЖАЛЮЗІ́**, *нескл., н.* Сонцазасцерагальныя шторы з нахільна ўмацаваных пласцінак на шнурах. ‖ *прым.* **жалюзі́йны**, -ая, -ае.

**ЖАЛЯ́ЗКА**, -а, *мн.* -і, -аў, *н.* (разм.). **1.** Лязо гэбля, фуганка і пад. **2.** Прас, які награваюць на агні (уст.).

**ЖАЛЯЗНЯ́К**, жалезнякý, *м.* (толькі з азначэннем). Жалезная руда. *Магнітны ж. Буры ж.*

**ЖАЛЯЗЯ́КА**, -і, *ДМ* -зяцы, *мн.* -і, -зя́к, *ж.* (разм.). Кавалак жалеза, жалезіна.

**ЖАМЕ́РЫНЫ**, -рын. Адходы пасля выціскання соку або алею з чаго-н. *Канапляныя ж.*

**ЖАМЧУ́ЖНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Малюск, у ракавіне якога ўтвараецца жэмчуг. *Марская ж.*

**ЖАМЧУ́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* жэмчуг. **2.** *перан.* Падобны на жэмчуг, жамчужыну сваім выглядам, бляскам, белізною. *Жамчужнае ззянне. Жамчужныя зубы.*

**ЖАМЧУ́ЖЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -жын, *ж.* **1.** Асобнае зерне жэмчугу. **2.** *перан., чаго* або *якая.* Непаўторны скарб, лепшае ўпрыгожанне (высок.). *Нарач — ж. беларускай зямлі.*

**ЖАНА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўступіў у шлюб, мае жонку; *проціл.* халасты (пра мужчыну). **2.** толькі *мн.* Пра мужчыну і жанчыну, якія ўступілі ў шлюб. *Жанатыя людзі.*

**ЖАНГЛЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Цыркавы акцёр, які займаецца жангліраваннем. ‖ *ж.* **жанглёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **жанглёрскі**, -ая, -ае.

**ЖАНГЛІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., чым* і *без дап.* **1.** Спрытна падкідваць і лавіць некалькі прадметаў адначасова. *Ж. талеркамі.* **2.** *перан.* Спрытна, але адвольна абыходзіцца (з фактамі, словамі і пад.). *Ж. лічбамі.* ‖ *наз.* **жанглёрства**, -а, *н.* і **жанглі́раванне**, -я, *н.*

**ЖАНДА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які служыць у жандармерыі. **2.** Паліцэйскі ў дарэвалюцыйнай Расіі. ‖ *прым.* **жанда́рскі**, -ая, -ае.

**ЖАНДАРМЕ́РЫЯ**, -і, *ж.* **1.** У некаторых краінах: дзяржаўная паліцыя, якая мае ваенную арганізацыю і выконвае ахоўныя функцыі ўнутры краіны і ў арміі. **2.** Палітычная паліцыя ў дарэвалюцыйнай Расіі. **3.** *зб.* Жандары.

**ЖАНІ́Х**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Мужчына, які мае нявесту; будучы муж нявесты. *Пазнаёміцца з жаніхом сяброўкі.* **2.** Мужчына, які ўступае ў шлюб, у час шлюбнай цырымоніі і ўрачыстасці. *Павіншаваць жаніха з нявестай.* **3.** Халасты мужчына, які мае намер жаніцца. ‖ *ласк.* **жанішо́к**, -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.* ‖ *прым.* **жаніхо́ўскі**, -ая, -ае (разм.). *Ж. выгляд.*

**ЖАНІХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* (разм.). Быць жаніхом, паводзіць сябе як жаніх.

**ЖАНІ́ЦЦА**, жанюся, жэ́нішся, жэ́ніцца; *зак.* і *незак., з кім* **1.** Пра мужчыну: уступіць (уступаць) у шлюб. *Сын жэніцца.* **2.** (*адз. л. не ўжыв.*). Уступіць (уступаць) у шлюб. *Сусед з суседкай жэняцца. Пакуль ж., загаіцца* (прыказка). ‖ *зак.* **ажані́цца**, ажанюся, ажэ́нішся, ажэ́ніцца (да 1 знач.) і **пажані́цца**, -жэ́німся, -жэ́ніцеся, -жэ́няцца (да 2 знач.). *Сын сёлета ажаніўся. Вырашылі п.* ‖ *наз.* **жані́цьба**, -ы, *ж.*

**ЖАНІ́ЦЬ**, жаню́, жэ́ніш, жэ́ніць; жані́; *незак., каго, з кім* і *без дап.* Шлюбам злучаць у пару для сямейнага жыцця (пра мужчыну). *Ж. сына. Без мяне мяне жанілі* (прыказка). ‖ *зак.* **ажані́ць**, ажаню́, ажэ́ніш, ажэ́ніць (да 1 знач.).

**ЖАНКІ́**, -но́к (разм.). Жанчыны. *Пара, ж., дадому ісці!*

**ЖАНО́ЦКІ**, -ая, -ае. Уласцівы жанчыне; мяккі, пяшчотны, прывабны. *Жаноцкае харawство.* ‖ *наз.* **жано́цкасць**, -і, *ж.*

**ЖАНО́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* жанчына. **2.** Уласцівы жанчыне, такі, як у жанчыны. *Жаночая ласка. Ж. характар.* **3.** Характэрны для асобін жаночага полу. *Жаночая палавая клетка.*

**ЖАНР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Род твораў у галіне якога-н. мастацтва, які характарызуецца пэўнымі ўласцівасцямі, сюжэтнымі і стылістычнымі прыкметамі. *Лірычны ж. Ж. ваеннага рамана.* **2.** Жывапіс на бытавыя тэмы (спец.). *Пейзаж і ж.* **3.** *перан.* Манера, стыль. *Спектакль у новым жанры.* ‖ *прым.* **жа́нравы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ЖАНРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак, які займаецца жывапісам на бытавыя тэмы.

**ЖАНЧЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -чы́н, *ж.* **1.** Асоба, па поле супрацьлеглая мужчыне. *Ж. сярэдніх гадоў.* **2.** Жонка (разм.). *Вы не сустрэлі маёй жанчыны?* ‖ *прым.* **жано́чы**, -ая, -ае. *Ж. пол.*

**ЖАНЧЫНАЛЮ́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пра мужчыну, які любіць заляцацца да жанчын.

**ЖАНЧЫНАЛЮ́БСТВА**, -а, *н.* Празмернае заляцанне да жанчын.

**ЖАНЧЫНАНЕНАВІ́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто пазбягае, ненавідзіць жанчын. ‖ *прым.* **жанчынаненаві́сніцкі**, -ая, -ае. ‖ *наз.* **жанчынаненаві́сніцтва**, -а, *н.*

**ЖАНЧЫНАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Падобны знешнім выглядам на жанчыну. *Ж. мужчына.*

**ЖАР**, -у, *м.* **1.** Гарачае вуголле без полымя. *Падгарнуць жару.* **2.** Моцна нагрэтае паветра; спёка. *Летні ж.* **3.** Павышаная тэмпература цела пры хваробе (разм.). *У дзіцяці моцны ж.* ◊ **Бегчы, як жару ўхапіўшы** (разм.) — вельмі хутка імчацца. **Даць (задаць) жару** (разм.) — моцна насварыцца, расправіцца з кім-н.; хутка зрабіць што-н. **Чужымі рукамі жар заграбаць** (разм., неадабр.) — не працуючы самому, карыстацца тым, што зрабілі іншыя.

**ЖАРАБЕ́ННЕ**, -я, *н.* Роды ў кабылы, асліцы, вярблюдзіцы. *Кабыла на жарабенні.*

**ЖАРАБЕ́Ц**, -бца́, *мн.* -бцы́, -бцо́ў, *м.* Непакладаны конь; конь-самец.

**ЖАРАБЁ** *гл.* жарабя.

**ЖАРАБ'Ё́ЎКА**, -і, *ДМ* -б'ёўцы, *мн.* -і, -б'ёвак, *ж.* Вызначэнне чаго-н. пры дапамозе жэрабя. *Прайсці жараб'ёўку.* ‖ *прым.* **жараб'ёвачны**, -ая, -ае.

**ЖАРАБІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -бі́ц, *ж.* Жаробка; маладая кабыла.

**ЖАРАБІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -рэ́біцца; *незак.* Нараджаць дзіцяня (пра кабылу, асліцу, вярблюдзіцу). ‖ *зак.* **ажарабі́цца**, -рэ́біцца.

**ЖАРАБО́К**, -бка́, *мн.* -бкі́, -бко́ў, *м.* Тое, што і *жарабец.*

**ЖАРАБЯ́** і **ЖАРАБЁ**, -бя́ці, *мн.* -бя́ты, -бя́т, *н.* Дзіцяня каня. ‖ *прым.* **жарабя́чы**, -ая, -ае.

**ЖАРАБЯ́ЦІНА**, -ы, *ж.* (разм.). Мяса жарабяці.

**ЖАРАВЫ́**, -а́я, -о́е. Які награваецца пры дапамозе жару (у 1 знач.). *Жаравая труба.*

**ЖАРАЛО́**, -а́, *мн.* жаро́лы і (*з ліч. 2, 3, 4*) жаралы́, жаро́лаў, *н.* Глыбокая адтуліна ў чым-н. *Ж. гарматы. Ж. вулкана.*

**ЖАРГО́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мова якой-н. прафесійнай або сацыяльнай групы, насычаная спецыфічнымі словамі і выразамі, якія адрозніваюцца ад агульнанароднай мовы. *Ж. маракоў.* ‖ *прым.* **жарго́нны**, -ая, -ае.

**ЖАРДЗІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -дзі́н, *ж.* Доўгая тоўстая жэрдка. ‖ *прым.* **жардзяны́**, -а́я, -о́е.

**ЖАРДЗЯНЫ́** *гл.* жардзіна, жэрдка.

**ЖАРДЫНЬЕ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Падстаўка, скрынка ці кашолка для пакаёвых кветак. ‖ *прым.* **жардынье́рачны**, -ая, -ае.

**ЖАРЛІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -лі́ц, *ж.* Рыбалоўная снасць для лоўлі шчупакоў і іншых драпежных рыб. ‖ *прым.* **жарлі́чны**, -ая, -ае.

**ЖАРНАВЫ́** *гл.* жорны.

**ЖАРНАСЕ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які насякае жорны.

**ЖА́РНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** *Аднакр.* да жарыць (у 2 знач.). **2.** Моцна ўдарыць. *Ж. бізуном па спіне.*

**ЖАРО́БКА**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* Маладая кабыла (да трох гадоў).

**ЖАРО́Н**, -рна́, *мн.* -ро́ны, -аў, *м.* Млынавы камень, які служыць для размолу зерня на муку. *Верхні, ніжні ж.* ‖ *прым.* **жаро́навы**, -ая, -ое.

**ЖАРО́ЎНЯ**, -і, *мн.* -і, -ро́вень і -ро́ўняў, *ж.* Пасудзіна для гарачага вуголля, а таксама жалезная печка, якая награваецца вуглём. ‖ *прым.* **жаро́венны**, -ая, -ае.

**ЖАР-ПТУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Казачная птушка незвычайнай прыгажосці з яркім агністым пер'ем. *Знайсці пяро жар-птушкі.*

**ЖАРСТВА́**, -ы́, *ж.* Буйны калючы пясок, дробныя каменьчыкі, якія ўтвараюцца ад разбурэння горных парод. ‖ *прым.* **жарсцвя́ны**, -ая, -ае.

**ЖАРТ**, -у, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Забаўная выхадка, востры дасціпны выраз. *На вяселлі гучаў смех і сыпаліся жарты за жартамі.* **2.** Кароткае апавяданне са смешным, забаўным зместам. **3.** Невялікая камічная п'еса. *П'еса-ж. у адной дзеі.* **4.** *у знач. прысл.* **жа́ртам**. Не сур'ёзна, для забавы. *Сказаць жартам.* ◊ **Без жартаў** — усур'ёз. **Жарты на (у) бок** — ужыв. як папярэджанне аб пераходзе да сур'ёзнай справы. **Не жарты** — пра што-н. важнае. **Не на жарт** — вельмі сур'ёзна. ‖ *памянш.* **жа́рцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.).

**ЖАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак.* **1.** *з кім* і *без дап.* Весела і забаўна гаварыць, рабіць што-н. для пацехі. *Ж. з дзецьмі.* **2.** *з каго-чаго* і *без дап.* Насміхацца. *Не трэба ж., бо чалавек можа пакрыўдзіцца.* **3.** Весела вастрасловіць. *Тонка ж.* **4.** Адносіцца да чаго-н. несур'ёзна, недаацэньваць каго-, што-н. *Са здароўем нельга ж.* ◊ **Жартаваць з агнём** — рабіць тое, пасля чаго можа быць непрыемны вынік.

**ЗААХВО́ЧВАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* заахвоціць. **2.** Тое, што заахвочвае каго-н. да чаго-н.; пахвала, узнагарода. *Атрымаць з. ад кіраўніцтва.*

**ЗАБАБО́ННЫ**, -ая, -ае. Прасякнуты забабонамі, заснаваны на забабонах. *Забабонныя людзі.* ‖ *наз.* **забабо́ннасць**, -і, *ж.*

**ЗАБАБО́НЫ**, -аў. Вера ў таямнічыя сілы, у тое, што некаторыя з'явы і падзеі з'яўляюцца праяўленнем звышнатуральных сіл; прымхі.

**ЗАБА́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -ба́ў, *ж.* Гульня, пацеха або тое, што забаўляе, весяліць. *Дзіцячыя забавы.*

**ЗАБА́ВІЦЦА**, -ба́ўлюся, -ба́вішся, -ба́віцца; *зак.* **1.** Затрымацца дзе-н. даўжэй, чым меркавалася; запазніцца. *З. ў горадзе.* **2.** Загуляцца. *Дзяўчынка забавілася лялькамі.*

**ЗАБАГАЦЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Стаць багатым; разбагацець.

**ЗАБАДА́ЦЬ** *гл.* бадаць.

**ЗАБАЛАБО́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *зак.* (разм.). **1.** Зазвінець, забрынкаць. **2.** Пачаць гаманіць, балбатаць.

**ЗАБАЛАМУ́ЦІЦЬ** *гл.* баламуціць.

**ЗАБАЛАЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак., каго (што).* Не выбраць пры балаціроўцы. *З. кандыдата.*

**ЗА́БАЛАЦЬ**, -і, *мн.* -і, -яў *і* -ей, *ж.* (разм.). Забалочанае месца.

**ЗАБАЛБАТА́ЦЦА**, -бачу́ся, -бо́чашся, -бо́чацца; -бачы́ся; *зак.* (разм.). Захапіцца балбатнёй.

**ЗАБАЛБАТА́ЦЬ**, -бачу́, -бо́чаш, -бо́ча; -бачы́; *зак.* (разм.). **1.** Пачаць балбатаць. *Нешта забалбатаў і пайшоў.* **2.** Забулькатаць, забулькаць (пра ваду і пад.).

**ЗАБАЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -лі́ць; *зак.* Пачаць балець. *Забалелі вочы.*

**ЗАБАЛО́ЦІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ціцца; *зак.* Ператварыцца ў балота. *Бераг забалоціўся.* ‖ *незак.* **забало́чвацца**, -аецца.

**ЗАБАЛО́ЧАНЫ**, -ая, -ае. Які ператварыўся ў балота, стаў топкім. *З. луг.* ‖ *наз.* **забало́чанасць**, -і, *ж.*

**ЗАБАЛЬЗАМАВА́ЦЬ** *гл.* бальзамаваць.

**ЗАБАРАНАВА́ЦЬ** *гл.* баранаваць.

**ЗАБАРАНІ́ЦЬ**, -раню́, -ро́ніш, -ро́ніць; -ро́нены; *зак.* **1.** *каму што* або *з інф.* Не дазволіць што-н. рабіць *З. курэнне. З. ірваць кветкі на клумбах.* **2.** *што.* Прызнаўшы грамадска шкодным, непатрэбным, не дапусціць да прымянення, карыстання. *З. прапаганду вайны. З. азартныя гульні.* ‖ *незак.* **забараня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **забаро́на**, -ы, *ж.*

**ЗАБАРО́ННЫ**, -ая, -ае. Які з'яўляецца забаронай, забяспечвае забарону. *Забаронныя меры. Забаронная зона.* ‖ *наз.* **забаро́ннасць**, -і, *ж.*

**ЗАБАРСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак. што.* Працягнуць аборы ў вушкі лапця.

**ЗА́БАРСНІ**, -яў, *адз.* за́барсня, -і, *ж.* (гіст.). Вяровачныя петлі, пры дапамозе якіх лапаць прымацоўваецца да нагі. ‖ *прым.* **за́барсневы**, -ая, -ае.

**ЗАБАРЫКАДАВА́ЦЦА** *гл.* барыкадавацца.

**ЗАБАРЫКАДАВА́ЦЬ** *гл.* барыкадаваць.

**ЗАБАСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *зак.* Аб'явіць забастоўку, пачаць баставаць.

**ЗАБАСТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *мн.* -то́вак, *ж.* Арганізаванае масавае спыненне работы на прадпрыемстве з мэтай дабіцца выканання якіх-н. патрабаванняў; стачка. *Усеагульная з. Аб'явіць забастоўку.* ‖ *прым.* **забасто́вачны**, -ая, -ае. *З. камітэт.*

**ЗАБАСТО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Удзельнік забастоўкі. ‖ *ж.* **забасто́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **забасто́ўшчыцкі**, -ая, -ае (разм.).

**ЗАБАСЦІ́** *гл.* басці.

**ЗА́БАЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -бавак, *ж.* **1.** Тое, што і *забава.* **2.** Рэч, якая служыць для гульні дзецям; цацка.

**ЗАБАЎЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* **1.** Праводзіць час у забавах. *З. дзіцячымі гульнямі.* **2.** *кім-чым* і *з чым.* Абыходзіцца з кім-, чым-н. як з цацкай, забаўкай. *З. з веерам.*

**ЗАБАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., каго (што).* Весяліць, пацяшаць чым-н. цікавым, забаўным. *З. дзяцей цацкамі. З. публіку.*

**ЗАБА́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які ўмее пацяшаць, забаўляць. ‖ *ж.* **заба́ўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЗАБА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можа пацешыць, развесяліць; дзіўны, цікавы. *З. чалавек. Забаўная гісторыя. Забаўнае здарэнне.* ‖ *наз.* **заба́ўнасць**, -і, *ж.*

**ЗАБЕ́Г**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* У спорце: бег на пэўную адлегласць. *З. на пяцьсот метраў.*

**ЗАБЕ́ГАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Стаміцца ад беганіны. *За дзень зусім забегаўся.*

**ЗАБЕ́ГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Пачаць бегаць. *У хваляванні з. па пакоі.*

**ЗАБЕ́ГЧЫ**, -бягу́, -бяжы́ш, -бяжы́ць; -бяжы́м, -бежыце́, -бягу́ць; забе́г, -гла; -бяжы́; *зак.* **1.** Бегучы, трапіць куды-н. *Цяля забегла ў агарод.* **2.** Зайсці куды-н. мімаходам, на кароткі час (разм.). *З. да знаёмых.* **3.** Бегучы, аддаліцца на значную адлегласць. *Хлопчык забег далёка ў поле.* **4.** Бегучы, зайсці збоку або абагнаць каго-н. *З. наперад* (таксама перан.: пачаць рабіць што-н. раней часу). ‖ *незак.* **забяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗАБЕ́ЛКА** *гл.* забяліць.

**ЗАБЕ́ЛЬВАННЕ** *гл.* забяліць.

**ЗАБЕ́ЛЬВАЦЬ** *гл.* забяліць.

**ЗАБЕСПЯЧЭ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (разм.). Работнік органаў забеспячэння.

**ЗАБЕСПЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* забяспечыць. **2.** Тое, чым забяспечваюць каго-, што-н. (матэрыяльныя каштоўнасці, грошы і пад.). *Грамадзяне нашай краіны маюць права на матэрыяльнае з. ў старасці.* **3.** Сукупнасць мерапрыемстваў па задавальненні матэрыяльных патрэб насельніцтва, якіх-н. арганізацый. *Органы забеспячэння. Прадуктовае з.* ‖ *прым.* **забеспячэ́нскі**, -ая, -ае. *Забеспячэнскія арганізацыі.*

**ЗАБЕТАНАВА́ЦЬ** *гл.* бетанаваць.

**ЗАБІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* забіць[1]. **2.** *без дап.* Пападаць, пранікаць (пра струмені вады, снег і пад.). *Прыкрыць брызентам, каб дождж не забіваў.* **3.** Душыць, мучыць (пра кашаль). *Кашаль забівае.*

**ЗАБІНТАВА́ЦЦА** *гл.* бінтавацца.

**ЗАБІНТАВА́ЦЬ** *гл.* бінтаваць.

**ЗАБІРА́ННЕ** *гл.* забраць.

**ЗАБІРА́ЦЦА** *гл.* забрацца.

**ЗАБІРА́ЦЬ** *гл.* забраць.

**ЗАБІ́ЦЦА**[1], -б'ю́ся, -б'е́шся, -б'е́цца; -б'ёмся, -б'яце́ся, -б'ю́цца; *зак.* **1.** Ударыўшыся, разбіцца насмерць. *З. пры падзенні.* **2.** Забрацца, схавацца куды-н. (разм.). *З. ў куток.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Закупорыцца, засмеціцца. *Труба забілася пяском.* ‖ *незак.* **забіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАБІ́ЦЦА**[2], -б'ю́ся, -б'е́шся, -б'е́цца; -б'ёмся, -б'яце́ся, -б'ю́цца; *зак.* Пачаць біцца. *Сэрца забілася.*

**ЗАБІ́ЦЬ**[1], -б'ю́, -б'е́ш, -б'е́; -б'ём, -б'яце́, -б'ю́ць; -бі́; -бі́ты; *зак.* **1.** *каго (што).* Пазбавіць жыцця або змучыць пабоямі. *З. з ружжа. Пагражаць з. З. да паўсмерці.* **2.** *перан., каго (што).* Запалохаць, пазбавіць здольнасці супраціўляцца. *З. чалавека маральна.* **3.** *каго (што).* Зарэзаць, закалоць на бойні ці на прамысловым паляванні (спец.). *З. свінню на сала. З. звера.* **4.** *што.* Убіць глыбока, да канца; увагнаць. *З. цвік у сцяну.* **5.** *што.* Ударамі, рэзкімі штуршкамі загнаць куды-н. *З. гол* (загнаць мяч у вароты). *З. шар у лузу* (на більярдзе). **6.** *што.* Закрыць наглуха, прыбіўшы дошкі і пад. *З. вокны дошкамі.* **7.** *што.* Напоўніць да канца чым-н.; закупорыць. *Пясок забіў трубу.* **8.** *зак.* да забіваць (у 3 знач.). ◊ **Забіць галаву** *каму чым* (разм.) — абцяжарыць памяць чым-н. непатрэбным. **Хоць забі** (разм.) — пра немагчымасць што-н. зрабіць. ‖ *незак.* **забіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **забо́й**, -ю, *м.* (да 3 знач.). *З. жывёлы.* ‖ *прым.* **забо́йны**, -ая, -ае (паводле 3 знач.; спец.). *З. цэх.*

**ЗАБІ́ЦЬ**[2], -б'ю́, -б'е́ш, -б'е́; -б'ём, -б'яце́, -б'ю́ць; *зак.* Пачаць біць (у 1 і 2 знач.). *Забілі бубны.*

**ЗАБІЯ́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -яцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -бія́к (разм.). Той, хто любіць распачынаць бойкі, буян, задзіра. ‖ *прым.* **забія́цкі**, -ая, -ае.

**ЗАБЛІШЧА́ЦЬ** *і* **ЗАБЛІШЧЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чы́ць; *зак.* Пачаць блішчаць, блішчэць. *Метал заблішчаў на сонцы. На вачах заблішчэлі слёзы.* ◊ **Толькі пяткі заблішчэлі** — пра вельмі хуткі бег.

**ЗАБЛУДЗІ́ЦЬ** *гл.* блудзіць[1].

**ЗАБЛУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** Блукаючы, зайсці куды-н. **2.** *перан.* Пачаць блукаць. *На губах заблукала ўсмешка.*

**ЗАБЛЫ́ТАНЫ**, -ая, -ае. Цяжкі для разумення, вырашэння. *Заблытаныя спра-*

*вы. Заблытанае пытанне.* ‖ *наз.* **заблы́танасць**, -і, *ж.*

**ЗАБЛЫ́ТАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** *гл.* блытацца. **2.** *перан.* Аказацца ў цяжкім становішчы ад чаго-н. *З. ў даўгах.* **3.** Збіцца з дарогі, заблудзіць (разм.). *З. ў незнаёмай мясцовасці.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць цяжкім для вырашэння. *Пытанне заблыталася.* ‖ *незак.* **заблы́тваацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАБЛЫ́ТАЦЬ** *гл.* блытаць.

**ЗАБЛЫ́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *блытаць* (у 1, 4 і 7 знач.).

**ЗАБЛЯ́МКАЦЬ** *гл.* блямкаць.

**ЗАБЛЯЯ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ляе́; *зак.* Пачаць бляяць. *Забляяла авечка.*

**ЗАБО́Й**[1], -ю, *м.* (спец.). У шахце: канец горнай выпрацоўкі, які паступова прасоўваецца ў ходзе работ і з'яўляецца рабочым месцам гарняка. ‖ *прым.* **забо́йны**, -ая, -ае.

**ЗАБО́Й**[2] *гл.* забіць[1].

**ЗАБО́ЙНЫ**[1] *гл.* забой[1].

**ЗАБО́ЙНЫ**[2], -ая, -ае. **1.** Прызначаны для забою[2], які мае адносіны да забою[2]. *Забойная жывёла. З. цэх. Забойная вага* (вага тушы без шкуры, галавы, ног). **2.** Які дзейнічае смяртэльна, забівае насмерць. *Забойная сіла асколка.* ‖ *наз.* **забо́йнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ЗАБО́ЙСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Злачыннае пазбаўленне жыцця каго-н.

**ЗАБО́ЙЦА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.*; *ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж.*, *мн.* -ы, -аў. Той, хто ўчыніў забойства. *Наёмны з.*

**ЗАБО́ЙШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Гарняк, які працуе ў забоі[1]. ‖ *прым.* **забо́йшчыцкі**, -ая, -ае.

**ЗАБРАКАВА́ЦЬ** *гл.* бракаваць.

**ЗАБРА́ЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* У старадаўнім узбраенні: частка шлема, якой прыкрываецца твар для засцярогі ад удараў. *Выступіць з адкрытым забралам* (перан.: прама, адкрыта; высок.). ‖ *прым.* **забра́льны**, -ая, -ае.

**ЗАБРАНІ́РАВАЦЬ** *гл.* браніраваць.

**ЗАБРАНІРАВА́ЦЬ** *гл.* браніраваць.

**ЗАБРАХА́ЦЬ**, -рашу́, -рэ́шаш, -рэ́ша; -рашы́; *зак.* Пачаць брахаць.

**ЗАБРА́ЦЦА**, -бяру́ся, -бярэ́шся, -бярэ́цца; -бяро́мся, -берацёся, -бяру́цца; -бяры́ся; *зак.* **1.** Залезці куды-н. (уверх, углыб); пранікнуць. *З. на вяршыню гары. З. пад коўдру. З. ў чужы агарод.* **2.** Зайсці, заехаць куды-н. далёка. *З. на край свету.* ‖ *незак.* **забіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАБРА́ЦЬ**, -бяру́, -бярэ́ш, -бярэ́; -бяро́м, -берацё, -бяру́ць; -бяры́; -бра́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Узяць, захапіць. *З. з сабой рэчы. З. у палон. З. грошы.* **2.** *што.* Адняць, прымусіць патраціць. *Работа забрала многа часу.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.*, *каго.* Авалодаць кім-н., падпарадкаваць сабе (разм.). *Мяне забраў страх. З. за жывое.* **4.** *што.* Увабраць, засунуць (пра адзенне) або зменшыць у шырыні або даўжыні пры шыцці. *З. штаны ў боты. З. рукаў.* ‖ *незак.* **забіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **забіра́нне**, -я, *н.* (да 1, 2 і 4 знач.) *і* **забо́р**, -у, *м.* (да 1 знач.; спец.). *Забор вады. Забор пробы.* ‖ *прым.* **забо́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *Заборная канструкцыя.*

**ЗАБРО́СНЕЛЫ**, -ая, -ае. Пакрыты, зацягнуты броснявой, цвіллю. *Забросьнелая сажалка.* ‖ *наз.* **забро́снеласць**, -і, *ж.*

**ЗАБРО́СНЕЦЬ** *гл.* броснець.

**ЗАБРУ́ДЖВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Тое, што і *брудзіцца.*

**ЗАБРУ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.*, *што.* Тое, што і *брудзіць.*

**ЗАБРУ́ДЗІЦЦА** *гл.* брудзіцца.

**ЗАБРУ́ДЗІЦЬ** *гл.* брудзіць.

**ЗАБРУКАВА́ЦЬ** *гл.* брукаваць.

**ЗАБРЫСЦІ́**, -брыду́, -брыдзе́ш, -брыдзе́; -брыдзём, -брыдзяцё, -брыду́ць; -ры́ў, -ыла́, -ыло́; -брыдзі́; *зак.* (разм.). Брыдучы, зайсці куды-н. *Карова забрыла ў агарод.* ‖ *незак.* **забрыда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗАБРЫТА́ЦЬ** *гл.* брытаць.

**ЗАБРЫ́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.*, *каго.* Тое, што і *брытаць.*

**ЗАБРЫ́ЦЬ**, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак.*, *каго.* Прызнаць годным да вайсковай службы. ◊ **Забрыць лоб** *каму* (уст.) — узяць у салдаты. ‖ *незак.* **забрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗАБУДАВА́ЦЦА**, -ду́юся, -ду́ешся, -ду́ецца; -ду́йся; *зак.* **1.** Пасяліўшыся, паставіць будынкі. *З. на краі вёскі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць забудаваным. *Участкі забудаваліся дачамі.* ‖ *незак.* **забудо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАБУДАВА́ЦЬ**, -дую, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак.*, *што.* Заняць пад будынак які-н. участак. ‖ *незак.* **забудо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **забудо́ўванне**, -я, *н.* *і* **забудо́ва**, -ы, *ж.*

**ЗАБУДО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто будуецца, забудоўваецца на адведзеным участку. *Індывідуальныя забудоўшчыкі. Завод-з.* ‖ *ж.* **забудо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЗАБУЛДЫ́ГА**, -і, *мн.* -і, -ды́г, *м.* (разм., пагард.). Шалапутны чалавек, які спіўся, вядзе амаральнае жыццё.

**ЗАБУРТАВА́ЦЬ** *гл.* буртаваць.

**ЗАБУЦІ́ЦЬ** *гл.* буціць.

**ЗАБЫ́ЦЦА**, -бу́дуся, -бу́дзешся, -бу́дзецца; -бу́дзься; *зак.* **1.** Тое, што і *забыць* (разм.). *З. прозвішча знаёмага. З. пра даручэнне.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Не захавацца ў памяці. *Тое здарэнне ўжо амаль забылася.* ‖ *незак.* **забыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАБЫЦЦЁ**, -я́, *н.* **1.** Стан, пры якім чалавек траціць памяць. *Упасці ў з.* **2.** Стан непрытомнасці, трызнення. *Разам наплывае з.* ◊ **Аддаць забыццю** — лічыць забытым што-н.

**ЗАБЫ́ЦЬ**, -бу́ду, -бу́дзеш, -бу́дзе; -бу́дзь; -бы́ты; *зак.* **1.** *каго-што* або *пра каго-што, на каго-што* або *аб кім-чым.* Перастаць помніць; страціць успамін пра каго-, што-н. *З. старое (пра старое, на старое). З. і думаць пра гэта* (перастаць успамінаць, спадзявацца на што-н.). **2.** *што, пра каго-што, аб кім-чым* і *з інф.* Упусціць з памяці, не ўспомніць. *З. адрас знаёмага. З. пра даручэнне (аб даручэнні).* **3.** *каго-што.* Пакінуць дзе-н., не захапіць з сабой па няўважлівасці. *З. парасон у аўтобусе. Што я там забыў?* (нашто мне там быць; няма чаго мне там рабіць; разм.).

**ЗАБЯГА́ЛАЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -лавак, *ж.* (разм., пагард.). Маленькая другаразрадная закусачная з продажам віна, піва.

**ЗАБЯГА́ЦЬ** *гл.* забегчы.

**ЗАБЯЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Пачаць бялець (у 2 знач.). *Забялела на ўсходзе.*

**ЗАБЯЛІ́ЦЬ**, -бялю́, -бе́ліш, -бе́ліць; -бе́лены; *зак.*, *што.* **1.** Скрозь пакрыць белай фарбай. *З. плямы на сцяне.* **2.** Прыправіць страву малаком, смятанай. *З. булён.* ‖ *незак.* **забе́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **забе́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* *і* **забе́льванне**, -я, *н.*

**ЗАБЯСПЕ́ЧАНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Матэрыяльны дабрабыт, дастатак. *Поўная з.* **2.** Ступень забеспячэння чым-н. *З. школ падручнікамі.*

**ЗАБЯСПЕ́ЧАНЫ**, -ая, -ае. Які жыве ў матэрыяльным дастатку. *Забяспечанае жыццё. З. чалавек.* ‖ *наз.* **забяспе́чанасць**, -і, *ж.*

**ЗАБЯСПЕ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Даць дастатковыя матэрыяльныя сродкі для жыцця. *З. сваю сям'ю прадуктамі.* **2.** *каго-што, чым.* Даць чаго-н. у неабходнай колькасці. *З. горад электраэнергіяй.* **3.** *што.* Зрабіць цалкам магчымым, сапраўдным, рэальна выканальным. *З. мір ва ўсім свеце. З. выкананне плана.* ‖ *незак.* **забяспе́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **забяспе́чыцца**, -чуся, -чышся, -чыцца; *незак.* **забяспе́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **забеспячэ́нне**, -я, *н.*

**ЗАВА́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак.*, *каго (што).* **1.** Хітрасцю прымусіць прыйсці куды-н., апынуцца дзе-н. *З. звера ў пастку.* **2.** Зачараваць сваім хараством, прывабіць. ‖ *незак.* **зава́бліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАВА́БЛІВЫ**, -ая, -ае. Які вабіць, прывабны. *Заваблівыя вочы.* ‖ *наз.* **зава́блівасць**, -і, *ж.*

**ЗА́ВАД**, -у, *м.* У выразе: **і заваду няма** (разм.) — няма і ніколі не было. *Ласёў тут і заваду няма.*

**ЗАВАДА́ТАЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (разм.). Тое, што і *завадатар.*

**ЗАВАДА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто пачынае, арганізоўвае што-н., з'яўляецца ініцыятарам чаго-н.; зачыншчык, верхавод. ‖ *ж.* **завада́тарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак.

**ЗАВА́ДЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзіць; *зак.* (разм.). Пашкодзіць. *Лішняя капейка не з. Гэта яго здароўю не з.*

**ЗА́ВАДЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей і -яў, *ж.* Невялікі заліў ракі ці возера з запаволеным цячэннем. ◊ **Ціхая завадзь** — бяспечнае, спакойнае месца.

**ЗАВАДНЫ́**, -а́я, -о́е. З заводам, які прыводзіцца ў дзеянне заводам[2] (у 3 знач.). *Завадная лялька.*

**ЗАВАДСКІ́**, -а́я, -о́е. **1.** Тое, што і *заводскі.* **2.** Племянны, пародзісты (пра свойскіх жывёл). *Завадскія свінні.*

**ЗАВАЁВА**, -ы, *ж.* **1.** *гл.* заваяваць. **2.** *мн.* -ы, -ёў. Тое, што заваявана; дасягненне, набытак.

**ЗАВАЁЎВАЦЬ** *гл.* заваяваць.

**ЗАВАЁЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто заваяваў або заваёўвае што-н. *Заваёўнікі космасу* (перан., высок.). ‖ *ж.* **заваёўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЗАВАЁЎНІЦКІ**, -ая, -ае. Накіраваны на заваяванне чужых зямель; захопніцкі. *Заваёўніцкая палітыка.*

**ЗАВА́ЖНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Пачаць важнічаць.

**ЗАВА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; *зак.* (разм.). Паказаць пры ўзважванні пэўную вагу. *Рыбіна заважыла два кілаграмы.*

**ЗАВА́Л**, -у *і* -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Нагрувашчванне, мноства чаго-н., што перашкаджае праходу, праезду. *Снежны з. Расчысціць з. на дарозе.* **2.** -а. Прыстасаванне ў выглядзе жэрдкі для запірання варот, дзвярэй. ‖ *прым.* **зава́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЗАВА́ЛА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Прыстасаванне ў форме металічнага стрыжня або жэрдкі для запірання дзвярэй. *Зачыніць дзверы на замок і завалу.* **2.** Тое, што і *завал* (у 1 знач.). **3.** *перан.* Лянівы чалавек, лежабок (разм.). ‖ *прым.* **зава́льны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ЗАВАЛАЧЫ́**, -лаку́, -лачэ́ш, -лачэ́; -лачо́м, -лачаце́, -лаку́ць; -ло́к, -лакла́, -ло́; -лачы́; -ло́чаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Валочачы, цягнучы, даставіць куды-н. *З. мяшок з бульбай у склеп. З. за вугал.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Закрыць, зацягнуць (хмарамі, туманам і пад.). *Хмары завалаклі неба. Бухту завалакло туманам.* ‖ *незак.* **завалака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **завала́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАВАЛАЧЫ́СЯ**, -лаку́ся, -лачэ́шся, -лачэ́цца; -лачо́мся, -лачаце́ся, -лаку́цца; -ло́кся, -лакла́ся, -ло́кся; -лачы́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *чым.* Закрыцца, зацягнуцца (хмарамі, туманам і пад.). *Неба завалаклося хмарамі. Вочы завалакліся слязамі.* **2.** Зайсці, зацягнуцца куды-н. (разм.). *Завалокся на край свету.* ‖ *незак.* **завалака́цца**, -а́ецца (да 1 знач.).

**ЗАВАЛІ́ЦЦА**, -валю́ся, -ва́лішся, -ва́ліцца; *зак.* **1.** Упасці за што-н. *Капялюш заваліўся за шафу.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Абваліцца, абрушыцца. *Калодзеж заваліўся.* **3.** Упасці, не ўстаяўшы на нагах. *Паслізнуцца і з.* **4.** Улегчыся, залегчы (разм.). *З. спаць.* **5.** Бесцырымонна зайсці, заявіцца куды-н.; уваліцца (разм.). *У хату заваліліся няпрошаныя госці.* **6.** *чым.* Атрымаць або мець з лішкам (разм.). *З. ўраджаем бульбы. Садавіны там — хоць заваліся.* ‖ *незак.* **зава́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАВАЛІ́ЦЬ**, -валю́, -ва́ліш, -ва́ліць; -ва́лены; *зак.* **1.** *каго-што.* Накідаўшы, наклаўшы чаго-н., напоўніць, загрувасціць. *З. яму каменнем. З. двор дрывамі. З. работай каго-н.* (перан.: абцяжарыць). *Магазін завалены таварамі* (перапоўнены). **2.** *каго-што.* Засыпаць зверху, пакрыць. *Дарогу заваліла* (безас.) *снегам.* **3.** *што.* Закрыць на завалу (у 1 знач.). *З. дзверы напач.* **4.** *перан., што.* Поўнасцю праваліць (разм.). *З. экзамен. З. справу.* **5.** *безас.* Пра боль у горле (разм.). *Горла заваліла.* ‖ *незак.* **зава́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **зава́льванне**, -я, *н.* *і* **зава́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* (да 1 знач.; спец.). ‖ *прым.* **зава́льны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.; спец.) *і* **зава́лачны**, -ае, -ае (да 1 знач.; спец.). *Завальная траншэя. Завалачная машына.*

**ЗАВАЛО́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае *і* **ЗАЎЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., кім-чым.* **1.** Узяць каго-, што-н. у поўнае сваё распараджэнне; захапіць. *З. чужой маёмасцю.* **2.** *перан.* Прыцягнуць да сябе, падпарадкаваць свайму ўплыву. *З. чыёй-н. увагай.* ‖ *незак.* **завало́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗА́ВАЛЬ**, -і, *ж., зб.* (разм.). Няходкія, заляжалыя тавары. *Прадаць танна з.*

**ЗАВАЛЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́ецца; *зак.* (разм.). Праляжаць доўга без выкарыстання, прымянення.

**ЗАВАЛЯ́ШЧЫ**, -ая, -ае (разм.). Дрэнны, зусім непрыгодны, нікому не патрэбны. *З. тавар.*

**ЗАВАРАЖЫ́ЦЬ**, -ражу́, -ро́жыш, -ро́жыць; -ро́жаны; *зак., каго (што).* **1.** Падзейнічаць загаворамі, чарамі; зачараваць. *З. зубы.* **2.** *перан.* Прывабіць сваім харастvом. *Музыка заваражыла слухачоў.* ‖ *незак.* **заваро́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАВА́РВАЦЦА** *гл.* заварыцца.

**ЗАВА́РВАЦЬ** *гл.* заварыць.

**ЗАВА́РКА** *гл.* заварыць.

**ЗАВАРНЫ́**, -а́я, -о́е. Які патрабуе пры прыгатаванні апрацоўкі варам, заваркі. *Заварное піроэкнае.*

**ЗАВАРО́Т**, -у, *М* -ро́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рэзкая змена напрамку руху, паварот (у 1 знач.), а таксама месца, дзе змяняецца напрамак. *З-за завароту ракі выплыла лодка.* ○ **Заварот кішак** — непраходнасць кішэчніка, выкліканая перакручваннем кішэчных петляў. ‖ *прым.* **заваро́тны**, -ая, -ае.

**ЗАВАРО́ЧВАЦЦА** *гл.* завярнуцца.

**ЗАВАРО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* завярнуць. **2.** *чым.* Кіраваць, распараджацца (разм.). *З. справамі.*

**ЗАВАРУ́ХА**, -і, *ДМ* -ру́се, *ж.* (разм.). Складаная, заблытаная справа, сумятня, неразбярыха.

**ЗАВАРУШЫ́ЦЦА**, -ушу́ся, -у́шышся, -у́шыцца; *зак.* Пачаць варушыцца, прыйсці ў рух. *Дзіця заварушылася ў калысцы. Трава заварушылася пад ветрам.*

**ЗАВАРУШЫ́ЦЬ**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; *зак., што і чым.* Пачаць варушыць. *З. пальцамі. Вецер заварушыў кусты.*

**ЗАВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ва́рыцца; *зак.* **1.** Настаяцца ў вары. *Чай заварыўся.* **2.** *перан.* Распачацца (пра што-н. клапатное, складанае, непрыемнае; разм.). *Заварылася справа.* ‖ *незак.* **зава́рвацца**, -аецца.

**ЗАВАРЫ́ЦЬ**, -ару́, -а́рыш, -а́рыць; -а́раны; *зак.* **1.** *што і чаго.* Прыгатаваць навар, настой з чаго-н. ці абдаць варам пры гатаванні чаго-н. *З. чай. З. ліпавага цвету. З. цеста.* **2.** Заліць, запоўніць пустоты ў металічным ліцці (спец.). **3.** *перан.* Распачаць рабіць што-н. (клапатное, непрыемнае; разм.). *З. справу.* ‖ *незак.* **зава́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **зава́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.) *і* **зава́рванне**, -я, *н.*

**ЗАВАСТРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -во́стрыцца; *зак.* **1.** Стаць вострым (у 1 знач.). *Нос завастрыўся* (стаў танчэйшым да кончыка пры схудненні). **2.** *перан.* Больш рэзка, больш ясна абазначыцца. *Пытанне завастрылася.* ‖ *незак.* **завастра́цца**, -а́ецца *і* **заво́стрывацца**, -аецца.

**ЗАВАСТРЫ́ЦЬ**, -вастру́, -во́стрыш, -во́стрыць; -во́страны; *зак., што.* **1.** Зрабіць вострым (у 1 знач.). *З. аловак.* **2.** *перан.* Больш рэзка абазначыць галоўнае, істотнае ў чым-н.; падкрэсліць. *З. пытанне.* ◊ **Завастрыць увагу** *на чым* — сканцэнтраваць увагу на чым-н. ‖ *незак.* **завастра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **заво́стрываць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАВАШЫ́ВЕЦЬ** *гл.* вашывець.

**ЗАВАЯВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *заваёўнік.*

**ЗАВАЯВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Накіраваны на заваяванне, звязаны з заваяваннем; заваёўніцкі, захопніцкі. *Заваявальныя войны.*

**ЗАВАЯВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* заваяваць. **2.** Тое, што і *заваёва* (у 2 знач.).

**ЗАВАЯВА́ЦЬ**, -ваю́ю, -ваю́еш, -ваю́е; -ваю́й; -ваява́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Захапіць вайной. *З. краіну.* **2.** *перан., што.* Дамагчыся, дасягнуць чаго-н. сваёй дзейнасцю. *З. аўтарытэт. З. сабе становішча.* ‖ *незак.* **заваёўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **заваёва**, -ы, *ж.* *і* **заваява́нне**, -я, *н.*

**ЗАВЕ́ДАМЫ**, -ая, -ае. Наперад добра вядомы; несумненны (звычайна пра што-н. адмоўнае). *З. нягоднік. Заведамая хлусня. Заведама* (прысл.) *няпраўдзівыя звесткі.*

**ЗАВЕ́ЗЦІ**, -вязу́, -вязе́ш, -вязе́; -вязём, -везяце́, -вязу́ць; завёз, -ве́зла; -вязі́; -ве́зены; *зак.* **1.** *каго-што.* Везучы, даставіць куды-н.; адвезці. *З. на работу.* **2.** *каго-што.* Везучы, накіраваць куды-н. вельмі далёка, не туды, куды належыць і пад. *З. ў глуш. Завёз невядома куды.* **3.** *што.* Даставіць па прызначэнні. *З. тавары ў магазін* ‖ *незак.* **заво́зіць**, -о́жу, -о́зіш, -о́зіць. ‖ *наз.* **заво́з**, -у, *м.* (да 3 знач.).

**ЗАВЕ́ЙНЫ** *гл.* завея.

**ЗАВЕ́ЛЬМІ**, *прысл.* (разм.). Занадта, празмерна, больш, чым трэба. *З. падрабязна.*

**ЗАВЕРБАВА́ЦЬ** *гл.* вербаваць.

**ЗАВЕ́РЧВАЦЬ** *гл.* завярцець[1].

**ЗАВЕ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* **1.** *каго (што) у чым.* Запэўніць у верагоднасці чаго-н., паручыцца за што-н. *«Усё будзе зроблена як мае быць», — заверыў старшыня.* **2.** *што.* Засведчыць, змацаваўшы подпісам, пячаткай. *З. подпіс. З. дакумент.* ‖ *незак.* **завяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **завярэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.), **завяра́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.) *і* **заве́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 2 знач.).

**ЗАВЕ́СА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Адна з дзвюх металічных пласцін, якімі прымацоўваюцца да вушака дзверы, аконныя рамы і пад. *Дзверы на новых завесах.* **2.** Тое, што і *заслона* (у 1 знач.). *Снежная з. З. туману.* ‖ *памянш.* **заве́ска**, -і, *ДМ* -ве́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* (да 1 знач.).

**ЗАВЕ́СІЦЬ**, -е́шу, -е́сіш, -е́сіць; -е́шаны; *зак., што.* Закрыць фіранкай. *З. вокны.* ‖ *незак.* **заве́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **заве́сіцца**, -е́шуся, -е́сішся, -е́сіцца; *незак.* **заве́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАВЕ́СЦІ**, -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзём, -ведзяце́, -вяду́ць; завёў, -вяла́, -ло́; -вядзі́; -ве́дзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Ведучы, змясціць куды-н., увесці. *З. каня ў стайню.* **2.** *каго (што).* Ведучы, даставіць куды-н. мімаходам, па дарозе. *З. дзіця ў сад.* **3.** *каго (што).* Ведучы, накіраваць куды-н., вельмі далёка, не туды, куды належыць. *З. ў балота.* **4.** *што.* Устанавіць, арганізаваць. *З. новыя парадкі. У нас так заведзена.* **5.** *каго-што.* Набыць, абзавесціся кім-, чым-н. *З. пчол. З. гаспадарку.* **6.** *што.* Пачаць што-н. (што абазначаецца назоўнікам). *З. гаворку. З. песню. З. дружбу.* **7.** *што.* Прывесці ў дзеянне, пусціць у ход (механізмы). *З. гадзіннік. З. матор.* ‖ *незак.* **заво́дзіць**, -о́джу, -о́дзіш, -о́дзіць. ‖ *наз.* **заво́д**, *М* -дзе, -у, *м.* (да 7 знач.) *і* **заво́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 7 знач.).

**ЗАВЕ́СЦІСЯ**, -вяду́ся, -вядзе́шся, -вядзе́цца; -вядзёмся, -ведзяце́ся, -вяду́цца; -вядзі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць вадзіцца, зрабіцца наяўным. *Завялося знаёмства. Грошы завяліся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Узнікнуць, распладзіцца. *У садзе завяліся шкоднікі.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць дзейнічаць, будучы заведзеным (*гл.* завесці ў 7 знач.). *Гадзіннік завёўся. Матор не завёўся.* **4.** Пачаць спрэчку, бойку і пад. з кім-н. (разм.). *З. сварыцца з кім-н. Ужо завёўся на паўдня* (перан.: гаварыць надта доўга і бесперастанку). ‖ *незак.* **заво́дзіцца**, -о́джуся, -о́дзішся, -о́дзіцца.

**ЗАВЕ́ШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што чым.* Павесіць на ўсёй прасторы чаго-н. *З. двор бялізнай.* ‖ *незак.* **заве́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАВЕ́Я**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Снежная бура, мяцеліца. ‖ *прым.* **заве́йны**, -ая, -ае.

**ЗАВІВА́ЦЦА** *гл.* завіцца.

**ЗАВІВА́ЦЬ** *гл.* завіць.

**ЗА́ВІДКІ**, -аў (разм.). Зайздрасць. *З завідкамі паглядаць. З. бяруць.*

**ЗА́ВІДНА**, *прысл.* Пакуль не сцямнела. *Выехаць з.*

**ЗАВІЗАВА́ЦЬ** *гл.* візаваць.

**ЗАВІЗІ́РАВАЦЬ** *гл.* візіраваць[1].

**ЗАВІ́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Выгіб, звіліна. *З. ракі.*

**ЗАВІ́ЛІСТЫ**, -ая, -ае. З завілінамі, звілісты. *Завілістая дарога.* ‖ *наз.* **заві́лістасць**, -і, *ж.*

**ЗАВІНАВА́ЦІЦЦА**, -ва́чуся, -ва́цішся, -ва́ціцца; *зак., каму* (разм.). Узяць у доўг, стаць даўжніком. *Я суседцы завінавацілася дваццаць тысяч рублёў.* ‖ *незак.* **завінава́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАВІНАВА́ЧАНАСЦЬ**, -і, *ж.* Наяўнасць даўгоў, доўгу. *Спагнаць з.*

**ЗАВІНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* (разм.). Спешна і старанна пачаць рабіць што-н. *З. і за гадзіну ўсё зрабіць.* ‖ *незак.* **завіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАВІРУ́ХА**, -і, *ДМ* -ру́се, *мн.* -і, -ру́х, *ж.* **1.** Мяцеліца, завея. *Узнялася з.* **2.** *перан.* Неспакой, сумятня, бязладзіца (разм.). *Ваенная з.* ‖ *перан.* **завіру́шны**, -ая, -ае.

**ЗАВІ́СНУЦЬ** *гл.* віснуць.

**ЗАВІТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* Зайсці, заехаць куды-н. на кароткі час; заглянуць. *З. да сябра.* ‖ *незак.* **заві́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАВІТО́К**, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* Што-н., што ўтварае хвалістую лінію, спіраль. *З. валасоў.*

**ЗАВІТУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Тое, што і *завіток.*

**ЗАВІ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ві́вак, *ж.* **1.** *гл.* завіць. **2.** Прычоска з завітымі валасамі. *Кароткая з.*

**ЗАВІХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Рабіць што-н. вельмі старанна, рупліва. *З. на кухні.* **2.** *каля каго-чаго.* Горача выяўляць сваю прыхільнасць, аддавацца каму-, чаму-н. *З. каля сям'і.*

**ЗАВІХРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́цца; *зак.* Закружыцца, узняцца віхрам. *Завіхрыўся пыл на дарозе.* ‖ *наз.* **завіхрэ́нне**, -я, *н.* (спец.). *З. вады, паветра.*

**ЗАВІ́ЦЦА**, заўю́ся, заўе́шся, заўе́цца; заўёмся, заўяце́ся, заўю́цца; заві́ўся, -ві́ла́ся, -ло́ся; заві́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць завітым, пакручастым. *Валасы завіліся.* **2.** Завіць сабе валасы. *Завілася ў цырульні.* ‖ *незак.* **завіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАВІ́ЦЬ** заўю́, заўе́ш, заўе́; заўём, заўяце́, заўю́ць; заві́ў, -ві́ла́, -ло́; заві́; заві́ты; *зак., што.* Зрабіць хвалістым, кучаравым або заплесці. *З. валасы.* ‖ *незак.* **завіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **заві́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **завіва́нне**, -я, *н.*

**ЗАВО́БЛАЧНЫ**, -ая, -ае. Вельмі далёкі, які знаходзіцца за воблакамі. *Завоблачныя вышыні. Завоблачныя мары* (перан.: далёкія ад жыцця, нерэальныя; іран.).

**ЗАВО́Д**[1], -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прамысловае прадпрыемства, звычайна буйное. *Трактарны з. Цукровы з.* **2.** Прадпрыемства для развядзення жывёл. *Конны з. Рыбаводны з.* ‖ *прым.* **заво́дскі**, -ая, -ае *і* **завадскі́**, -а́я, -о́е.

**ЗАВО́Д**[2], -у *і* -а, *М* -дзе, *м.* **1.** *гл.* завесці. **2.** -у. Тэрмін дзеяння заведзенага механізма. *Гадзіннік з сутачным заводам.* **3.** -а. Прыстасаванне для прывядзення ў дзеянне механізма. *З. гадзінніка.* **4.** -у. Частка тыражу кнігі, надрукаваная з аднаго набору (спец.).

**ЗАВО́Д**[3], -у, *М* -дзе *м.* (разм.). Асобая, адборная парода свойскай жывёлы. *Свінні добрага заводу. Пакінуць на з.* ‖ *прым.* **завадскі́**, -а́я, -о́е. *З. жарабок.*

**ЗАВОДАКІРАЎНІ́ЦТВА**, -а, *н.* Адміністрацыйны орган на заводзе[1] (у 1 знач.), які кіруе ўсёй вытворчасцю, адміністрацыя завода.

**ЗАВО́ДЗІЦЦА** *гл.* завесціся.

**ЗАВО́ДЗІЦЬ** *гл.* завесці.

**ЗАВО́ДКА** *гл.* завесці.

**ЗАВО́ДСКІ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да завода[1]. *З. корпус. Заводская канюшня.*

**ЗАВО́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Уладальнік завода[1] (у 1 знач.).

**ЗАВО́З** *гл.* завезці.

**ЗАВО́ЗІЦЬ** *гл.* завезці.

**ЗАВО́РВАЦЬ** *гл.* заараць[1–2].

**ЗАВО́СТРЫВАЦЦА** *гл.* завастрыцца.

**ЗАВО́СТРЫВАЦЬ** *гл.* завастрыць.

**ЗАВО́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто вучыцца завочна. ‖ *ж.* **заво́чніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЗАВО́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адбываецца пры адсутнасці таго, хто мае дачыненне да справы. *Завочнае знаёмства.* **2.** Звязаны з навучаннем без пастаяннага наведвання лекцый, шляхам самастойнага вывучэння прадметаў. *Завочнае аддзяленне педагагічнага ўніверсітэта. Завочнае навучанне.*

**ЗАВО́ШТА**, *прысл.* (разм.). **1.** *пыт.* За што, па якой прычыне. *З. ты пакрыўдзіў дзіця?* **2.** *адноснае.* Ужыв. ў якасці злучальнага слова ў дадзеных дапаўняльных сказах са знач.: па якой прычыне, чаму. *Ён расказаў, з. паспрачаўся з хлопцамі.*

**ЗАВУАЛІ́РАВАЦЬ** *гл.* вуаліраваць.

**ЗАВУГО́ЛЛЕ**, -я, *н.* Месца за вуглом, за будынкам або сярод будынкаў. *Шуміць вецер у завуголлі.* ◊ **Па завуголлі бегаць** — адвільваць, ухіляцца ад чаго-н.

**ЗАВУ́ЗІЦЬ**, -у́жу, -у́зіш, -у́зіць; -у́жаны; *зак., што.* Зрабіць вузей, чым трэба; звузіць. *З. сукенку ў таліі.* ‖ *незак.* **заву́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАВУ́ЗКІ**, -ая, -ае (разм.). Вузкаваты, вузейшы, чым трэба. *З. калідор.*

**ЗАВУ́ЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* Невялікая, звычайна вузкая вуліца, якая злучае дзве іншыя, паралельныя вуліцы. *Сустрэцца ў завулку.* ‖ *прым.* **заву́лачны**, -ая, -ае.

**ЗАВУ́СЕНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** Задраная скурка каля пазногця. *Пазногці ў завусеніцах.* **2.** Востры выступ на паверхні металу (спец.). *Дэталь з завусеніцамі.*

**ЗАВУЧЫ́ЦЦА**, -учу́ся, -у́чышся, -у́чыцца; *зак.* (разм.). Стаміўшыся ад заняткаў, перастаць успрымаць, запамінаць. *Пусці*

*хлопца пагуляць, ён ужо завучыўся.* ‖ *незак.* **завýчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАВУЧЫЦЬ**, -учý, -ýчыш, -ýчыць; -ýчаны; *зак., што.* Вучачы, запомніць, засвоіць. *З. правіла. З. верш на памяць.* ‖ *незак.* **завýчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАВУШНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Упрыгожанне, звычайна ў выглядзе кальца, якое прымацоўваецца да мочкі вуха. *Залатыя завушніцы.* ‖ *памянш.* **завушні́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ЗАВУ́ШНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца за вухам. *Завушная пухліна.*

**ЗАВЫВА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* Перарывіста, нудна выць. *Завываюць ваўкі. Вецер завывае.* ‖ *наз.* **завыва́нне**, -я, *н.*

**ЗАВЫ́СІЦЬ**, -ы́шу, -ы́сіш, -ы́сіць; -ы́шаны; *зак., што.* Занадта павысіць. *З. нормы выпрацоўкі. З. цэны. З. ацэнку на экзамене.* ‖ *незак.* **завышáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **завышэ́нне**, -я, *н.*

**ЗАВЭ́ДЗГАЦЬ** *гл.* вэдзгаць.

**ЗАВЯДЗЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Звычай, традыцыя. *Такая з. была ў іх.*

**ЗАВЯЗА́ЦЦА**, -вяжýся, -вя́жашся, -вя́жацца; -вяжы́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Замацавацца, сцягнуцца вузлом, бантам і пад. *Гальштук добра завязаўся.* **2.** Абгарнуцца, пакрыцца чым-н., завязаўшы канцы вузлом. *Старая завязалася хусткай па самыя вочы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Устанавіцца, распачацца (пра якія-н. узаемаадносіны, узаемныя дзеянні). *Завязалася гутарка. Завязалася сяброўства.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць развівацца пасля апылення. *Плод завязаўся.* ‖ *незак.* **завя́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАВЯЗА́ЦЬ**, -вяжý, -вя́жаш, -вя́жа; -вяжы́; -вя́заны; *зак., што.* **1.** Змацаваць, злучыць канцы чаго-н. вузлом, бантам і пад. *З. вузел. З. гальштук. З. хустку.* **2.** Абматаўшы, змацаваць канцы бінту, вяроўкі і пад. *З. вочы. З. мех. З. парэзаны палец.* **3.** Распачаць, даць узнікнуць (таму, што названа назоўнікам). *З. бой. З. перастрэлку. З. гаворку. З. знаёмства.* ◊ **Свет завязаць** *каму* (разм.) — зрабіць перашкодай, пазбавіць свабоды дзеянняў. **Як завязаць** (разм.) — 1) поўна, вельмі многа, колькі ўлезла. *Насыпаць мех як з.*; 2) колькі можна, уволю. *Наеўся як з.* ‖ *незак.* **завя́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **завя́званне**, -я, *н. і* **завя́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ЗА́ВЯЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн*, -і, -зак, *ж.* Тое, чым завязваюць (вяровачка, шнурок, тасьма). *Трэба мацнейшая з., бо гарох рассыплецца.* ◊ **Па самую завязку** або **пад завязку** (разм.) — наесціся ўволю.

**ЗАВЯ́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* **1.** *гл.* завязаць. **2.** Эпізод, з якога пачынаецца развіццё сюжэта ў мастацкім творы. *З. драмы.*

**ЗАВЯ́ЗНУЦЬ** *гл.* вязнуць.

**ЗА́ВЯЗЬ**, -і, *ж.* Ніжняя частка песціка ў кветкі, якая пасля апылення ператвараецца ў плод.

**ЗАВЯЛІ́КІ**, -ая, -ае. Велікаваты, большы, чым патрэбна. *З. касцюм.*

**ЗАВЯ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які завяў, зрабіўся вялым. *Завялая трава. З. твар* (перан.).

**ЗАВЯ́НУЦЬ** *гл.* вянуць.

**ЗАВЯРА́ННЕ** *гл.* заверыць.

**ЗАВЯРА́ЦЬ** *гл.* заверыць.

**ЗАВЯРНУ́ЦЦА**, -вярнýся, -вéрнешся, -вéрнецца; -вярні́ся; *зак.* **1.** Змяніць напрамак свайго руху або становішча свайго цела. *Вецер завярнуўся з другога боку. Дарога завярнулася ўлева. Сказаўшы гэтыя словы, ён завярнуўся.* **2.** Прыбыўшы ў якое-н. месца, хутка пакінуць яго (разм.). *З. і паехаць назад.* ‖ *незак.* **заваро́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАВЯРНУ́ЦЬ**, -вярнý, -вéрнеш, -вéрне; -вярні́; -вéрнуты; *зак.* **1.** *каго-што* і *без дап.* Змяніць напрамак, шлях руху; павярнуць. *З. назад. З. каня налева. З. кароў ад шкоды. Машына завярнула ў бок лесу. Дарога завярнула да ракі.* **2.** *што.* Паварочваючы, змяніць становішча чаго-н. *З. назад рукі каму-н.* **3.** Зайсці мімаходам (разм.). *З. да знаёмых.* **4.** *каго-што.* Заваліць, закідаць чым-н. (разм.). *З. яму зямлёй.* ◊ **Завярнуць аглоблі** (разм.) — пайсці, паехаць назад, не дасягнуўшы мэты. ‖ *незак.* **заваро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАВЯРЦЕ́ЦЦА**, -вярчýся, -вéрцішся, -вéрціцца; -вярці́ся; *зак.* Пачаць вярцецца.

**ЗАВЯРЦЕ́ЦЬ**[1], -вярчý, -вéрціш, -вéрціць; -вярці́; -вéрчаны; *зак., каго-што.* Абгарнуць, абматаць з усіх бакоў. *З. пакунак у газету. З. паранены палец.* ‖ *незак.* **заве́рчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАВЯРЦЕ́ЦЬ**[2], -вярчý, -вéрціш, -вéрціць; -вярці́; *зак.* Пачаць вярцець, круціць.

**ЗАВЯРША́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з заканчэннем, завяршэннем чаго-н. *З. год. З. этап работы.*

**ЗАВЯРШЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -вéршыцца; *зак.* Закончыцца, скончыцца. *Будаўніцтва завяршылася. Завяршыўся хакейны сезон.* ‖ *незак.* **завярша́цца**, -áецца. ‖ *наз.* **завяршэ́нне**, -я, *н.*

**ЗАВЯРШЫ́ЦЬ**, -вяршý, -вéршыш, -вéршыць; -вéршаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць верх у чым-н. *З. стог.* **2.** Давесці да канца, закончыць, скончыць. *З. сяўбу. З. вучобу.* ‖ *незак.* **завярша́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **завяршэ́нне**, -я, *н.*

**ЗАВЯРЭ́ННЕ** *гл.* заверыць.

**ЗАВЯШЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто зрабіў завяшчанне. ‖ *ж.* **завяшча́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЗАВЯШЧА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Вусны або пісьмовы наказ, які змяшчае распараджэнні (пераважна аб маёмасці) на выпадак смерці. *Духоўнае з.* (перан.: запавет нашчадкам, паслядоўнікам). ‖ *прым.* **завяшча́льны**, -ая, -ае. *Завяшчальнае пісьмо.*

**ЗАВЯШЧА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *зак.* і *незак.* **1.** *каго-што каму.* Перадаць (перадаваць) па завяшчанні. *З. маёмасць сыну.* **2.** *каму з інф.* Даручыць (даручаць) што-н., выказаўшы перадсмяротную волю. *Вучоны завяшчаў прадоўжыць справу сваім вучням.*

**ЗАГАВА́РВАЦЦА** *гл.* загаворвацца.

**ЗАГАВА́РВАЦЬ**[1] *гл.* загаворваць[1].

**ЗАГАВА́РВАЦЬ**[2] *гл.* загаворваць[2].

**ЗАГАВАРЫ́ЦЦА**, -варýся, -вóрышся, -вóрыцца; *зак.* Захапіцца размовай. ‖ *незак.* **загаво́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАГАВАРЫ́ЦЬ**[1], -варý, -вóрыш, -вóрыць; *зак.* **1.** Пачаць гаварыць. *Усе разам загаварылі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Абудзіцца, праявіцца ў дзеяннях, настроях і інш. *Сумленне загаварыла ў кім-н.* **3.** *каго (што).* Стаміць працяглымі размовамі (разм.). *З. размоўцу.* ‖ *незак.* **загаво́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАГАВАРЫ́ЦЬ**[2], -варý, -вóрыш, -вóрыць; -вóраны; *зак., каго-што.* Уздзейнічаць на каго-, што-н. замовай, загаворам[2]. *З. ад хваробы.* ◊ **Загаварыць зубы** *каму-н.* (разм.) — наўмысна адцягнуць увагу ад чаго-н. пабочнымі размовамі. ‖ *незак.* **загаво́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАГАВЕ́ЦЬ**, -éю, -éеш, -éе; *зак.* Перастаць есці скаромнае; пачаць пасціць. ◊ **Загавець душой** (разм.) — аддаць богу душу, памерці.

**ЗА́ГАВІНЫ**, -він. У веруючых: апошні дзень перад постам, калі дазваляецца есці скаромнае.

**ЗАГАВО́Р**[1], -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тайнае пагадненне аб сумесных дзеяннях супроць каго-н. у палітычных і іншых мэтах. *З. мяцежнікаў.*

**ЗАГАВО́Р**[2], -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* У забабонных уяўленнях: магічныя словы, якія маюць гаючую, лекавую сілу. *З. ад болю зубоў.*

**ЗАГАВО́РВАЦЦА** *і* **ЗАГАВА́РВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** *гл.* загаварыцца. **2.** Гаварыць бяссэнсіцу ў выніку расстройства, хваравітага стану, старасці. *Стары пачаў з.*

**ЗАГАВО́РВАЦЬ**[1] *і* **ЗАГАВА́РВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* загаварыць[1]. **2.** *з кім.* Імкнуцца распачаць гаворку.

**ЗАГАВО́РВАЦЬ**[2] *і* **ЗАГАВА́РВАЦЬ**[2] *гл.* загаварыць[2].

**ЗАГАВО́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Удзельнік тайнага пагаднення. ‖ *ж.* **загаво́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЗАГАГУ́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* (разм.). Мудрагелісты загіб, кручок. *Пісаць з загагулінамі.*

**ЗАГА́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Афіцыйнае распараджэнне таго, хто надзелены ўладай. *З. па інстытуце. Ваенны з. Аддаць з.* ‖ *прым.* **зага́дны**, -ая, -ае. *Узагадным парадку* (шляхам загаду).

**ЗАГАДА́ЦЬ**[1], -áю, -áеш, -áе; -гáданы; *зак., каму.* **1.** *з інф.* Аддаць загад; распарадзіцца. **2.** Апавясціць (аб сходзе; разм.). *З. на сход.* ‖ *незак.* **зага́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАГАДА́ЦЬ**[2], -áю, -áеш, -áе; -гáданы; *зак., што.* **1.** Прапанаваць для разгадкі. *З. загадку.* **2.** Задумаць што-н., трымаючы ў

памяці або варожачы. *З. лік. З. на картах.* ‖ *незак.* **зага́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАГА́ДВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* загадаць[1]. **2.** *чым.* Кіраваць (установай), распараджацца чым-н. *З. кафедрай.*

**ЗАГАДВАЦЬ**[2] *гл.* загадаць[2].

**ЗАГА́ДЗІЦЬ**, -а́джу, -а́дзіш, -а́дзіць; -а́дзь; -а́джаны; *зак., што* (разм.). Забрудзіць нечыстотамі, адкідамі. ‖ *незак.* **зага́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАГАДЗІ́ЦЬ**, -гаджу́, -го́дзіш, -го́дзіць; -го́джаны; *зак., каго* (разм.). Задобрыць чым-н., выклікаць прыхільнасць. *З. ляснічага.*

**ЗА́ГАДЗЯ**, *прысл.* Зараней, папярэдне. *Апавясціць з. З. рыхтавацца да пасяўной.*

**ЗАГА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Відарыс або вобраз, які трэба разгадаць, растлумачыць. *Загадаць каму-н. загадку. Загадкі прыроды* (перан.). *Гэта застаецца загадкай для нас* (перан.: недаступным для разумення, вырашэння).

**ЗАГА́ДКАВЫ**, -ая, -ае. Незразумелы, непазнаны, таямнічы. *Загадкавая з'ява. Загадкава* (прысл.) *паводзіць сябе.* ‖ *наз.* **зага́дкавасць**, -і, *ж.*

**ЗАГА́ДНЫ**, -ая, -ае. Які выражае загад. *З. жэст.* ○ **Загадны лад** — у граматыцы: форма дзеяслова, якая выражае загад, просьбу, чыю-н. волю. ‖ *наз.* **зага́днасць**, -і, *ж.*

**ЗАГА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто загадвае чым-н. *З. малочнатаварнай фермы.* ‖ *ж.* **зага́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **зага́дчыцкі**, -ая, -ае.

**ЗАГАЗАВА́НЫ**, -ая, -ае (спец.). Насычаны, забруджаны шкодным газам (пра паветра). ‖ *наз.* **загазава́насць**, -і, *ж.*

**ЗАГАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -го́іцца; *зак.* Зацягнуцца, зарубцавацца, зажыць (пра рану). *Рана загаілася.* ‖ *незак.* **заго́йвацца**, -аецца.

**ЗАГАІ́ЦЬ**, -гаю́, -го́іш, -го́іць; -го́ены; *зак., што.* Залячыць, зажывіць (рану, пашкоджанне на целе). *З. рану.* ‖ *незак.* **заго́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАГАЙДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **ЗАГО́ЙДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Пачаць гайдацца.

**ЗАГАЙДА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ЗАГО́ЙДАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.*, звычайна *безас., каго (што).* Гайданнем стаміць, выклікаць галавакружэнне, моташнасць. *Мяне загайдала ў самалёце.* ‖ *незак.* **заго́йдваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАГАЙДА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ЗАГО́ЙДАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *зак.* Пачаць гайдаць.

**ЗАГАЛІ́ЦЬ**, -галю́, -го́ліш, -го́ліць; -го́лены; *зак., што* (разм.). Адкрыць якую-н. частку цела, падняўшы край вопраткі. ‖ *незак.* **заго́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **загалі́цца**, -галю́ся, -го́лішся, -го́ліцца; *незак.* **заго́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАГАЛО́ВАК**, -ло́ўка, *мн.* -ло́ўкі, -ло́ўкаў, *м.* Назва якога-н. твора (літаратурнага, навуковага і пад.) або асобных яго частак. ‖ *прым.* **загало́вачны**, -ая, -ае *і* **загало́ўны**, -ая, -ае. *З. шрыфт.* ○ **Загалоўная літара** — вялікая літара, якая пішацца ў слове ў пачатку тэксту, раздзела, абзаца.

**ЗАГА́НА**, -ы, *мн.* -ы, -га́н, *ж.* **1.** Недахоп, які выклікае асуджэнне, ганебная ўласцівасць. *Тавар з заганай.* **2.** Фізічны недахоп. *З. вымаўлення.*

**ЗАГАНАРЫ́ЦЦА**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; -ры́мся, -рыце́ся, -ра́цца; *зак.* Пачаць ганарыцца; стаць ганарыстым, фанабэрыстым.

**ЗАГА́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Дрэнны, з заганамі. *З. стыль работы.* **2.** Амаральны, непрыстойны. *З. ўчынак.* ‖ *наз.* **зага́ннасць**, -і, *ж.*

**ЗАГАНЯ́ЦЬ**[1] *гл.* загнаць.

**ЗАГАНЯ́ЦЬ**[2], -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго* (разм.). **1.** Змарыць, давесці да стомы, прымушаючы многа хадзіць, бегаць і пад. *З. каня.* **2.** *перан.* Стаміць працай, шматлікімі даручэннямі і пад. *Вы ўжо гэтага хлопчыка зусім заганялі.*

**ЗАГА́Р**, -у, *м.* Смуглы, цёмны колер, які набывае скура пад уздзеяннем ультрафіялетавых праменяў сонца або штучных крыніц святла.

**ЗА́ГАРАДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** Агароджа з жэрдак, колля і пад. **2.** Агароджанае месца ў хляве для жывёлы, стойла.

**ЗАГАРАДЖА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Судна, якое ставіць мінныя і іншыя загароды. *Мінны з.*

**ЗАГАРАДЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць загародай ад чаго-н., перашкодай чаму-н. *З. агонь. З. атрад.*

**ЗАГАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны; *зак., каго-што.* Зрабіць агароджу, плот, абнесці якой-н. перашкодай. *З. плот. З. уваход. З. сабой каго-н.* ‖ *незак.* **загаро́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **загарадзі́цца**, -раджу́ся, -ро́дзішся, -ро́дзіцца; *незак.* **загаро́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗА́ГАРАДЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Тое, што і *загарада.*

**ЗА́ГАРАДКА** *і* **ЗАГАРО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Невысокая перагародка, звычайна ўнутры памяшкання. **2.** Месца, адгароджанае плотам.

**ЗА́ГАРАДНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца або адбываецца, ажыццяўляецца за горадам. *З. дом творчасці. Загарадная экскурсія.*

**ЗАГАРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ЗАГА́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* загарэць. **2.** *перан.* Бяздзейнічаць, рабіць вымушаны адпачынак у рабочы час (разм., жарт.). *Насення не падвезлі, сеяльшчыкі загараюць на полі.*

**ЗАГАРНУ́ЦЦА**, -гарну́ся, -го́рнешся, -го́рнецца; -гарні́ся; *зак.* Ахінуць, абгарнуць сябе чым-н., закруціцца ў што-н. *З. ў коўдру.* ‖ *незак.* **заго́ртвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАГАРНУ́ЦЬ**, -гарну́, -го́рнеш, -го́рне; -гарні́; -го́рнуты; *зак.* **1.** *што.* Згарнуць у адно месца, загрэбці. *З. жар.* **2.** *што.* Прыкрыць зверху (пяском, лісцем і пад.). *З. зямлёй.* **3.** *каго-што.* Ахінуць, закруціць у што-н. *З. хлеб у сурвэтку. З. дзіця ў коўдру.* **4.** *што.* Закрыць (кнігу, сшытак і пад.). *З. канспект.* **5.** *што.* Загнуць, адвярнуць край адзення, тканіны і пад. *З. крысо шыняля.* ‖ *незак.* **заго́ртваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАГАРО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ро́д, *ж.* **1.** Штучная перашкода для руху каго-, чаго-н. *Мінныя загароды. Драцяная з.* **2.** Агароджа, загарадзь. *Заехаць за загароду.*

**ЗАГАРО́ДЖВАЦЦА** *гл.* загарадзіцца.

**ЗАГАРО́ДЖВАЦЬ** *гл.* загарадзіць.

**ЗАГАРО́ДКА** *гл.* загарадка.

**ЗАГАРТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Атрымаць большую цвёрдасць шляхам загартоўкі. *Сталь загартавалася.* **2.** *перан.* Стаць фізічна і маральна стойкім. *Здароўе загартавалася. Армія загартавалася ў баях.* ‖ *незак.* **загарто́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАГАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* **1.** *што.* Надаць металічнаму вырабу большую цвёрдасць шляхам награвання і хуткага ахаладжэння. **2.** *перан.* Зрабіць фізічна і маральна моцным, стойкім, вынослівым. *З. здароўе.* ‖ *незак.* **загарто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **загарто́ўванне**, -я, *н.* *і* **загарто́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* *Чалавек атрымаў добрую загартоўку.* ‖ *прым.* **загарто́вачны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**ЗАГАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Цёмны, смуглы ад загару. *З. твар.*

**ЗАГАРЭ́ЦЦА**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; -ры́мся, -рыце́ся, -ра́цца; -ры́ся; *зак.* **1.** Пачаць гарэць (у 1, 5—7 знач.). *У далечыні загарэўся агеньчык. Загарэлася з вышак* (пачаўся пажар). *З. ідэяй* (перан.). *Вочы загарэліся ад цікаўнасці* (перан.). **2.** *безас., каму з інф.* Вельмі захацецца (разм.). *Загарэлася яму ісці ў грыбы.* **3.** *перан.* Узнікнуць, пачацца з вялікай сілай. *Загарэлася спрэчка.* ‖ *незак.* **загара́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАГАРЭ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; -ры́; *зак.* Набыць загар. *З. на сонцы.* ‖ *незак.* **загара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **зага́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАГАСІ́ЦЬ** *гл.* гасіць.

**ЗАГА́СЛЫ**, -ая, -ае. Які перастаў гарэць, свяціць, патухлы. *Загаслыя галавешкі. Загаслыя вочы* (перан.: стомленыя).

**ЗАГА́СНУЦЬ** *гл.* гаснуць.

**ЗАГАСЦІ́ЦЦА**, -гашчу́ся, -го́сцішся, -го́сціцца; *зак.* (разм.). Надта доўга прабыць у гасцях.

**ЗАГАТАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ту́ецца; *зак.* Закіпець, зрабіцца кіпячоным, гатовым для ўжывання. *Чай загатаваўся.*

**ЗАГАТАВА́ЦЬ**[1], -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што* і *чаго* (разм.). Стварыць запас чаго-н., нарыхтаваць. *З. дроў на зіму.* ‖ *незак.* **загато́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

далёка. *З. мяч у сетку. З. вуду* (таксама перан.: паспрабаваць папярэдне разведаць што-н. намёкам, пытаннямі; разм.). **2.** *што.* Падняўшы, надаць чаму-н. іншае становішча. *З. нагу за нагу. З. стрэльбу за плячо.* **3.** *перан., каго-што.* Даставіць куды-н. *З. прадукты на дачу. З. дэсант у тыл ворага.* **4.** *каго-што.* Перастаць займацца кім-, чым-н., пакінуць каго-, што-н. *З. вучобу. З. гаспадарку.* ◊ **Закінуць слова** або **слоўца** (разм.) — пахадайнічаць за каго-н., аказаць падтрымку. **Як за сябе закінуць** (разм.) — хутка і многа з'есці, выпіць. ‖ *незак.* **закіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **закі́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **за́кід**, -у, *М* -кідзе, *м.* (да 1—3 знач.).

**ЗАКІПЕ́ЦЬ**[1] *гл.* кіпець.

**ЗАКІПЕ́ЦЬ**[2], -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́; *зак.* Пачаць кіпець. *Вада закіпела.*

**ЗАКІПЯЦІ́ЦЦА** *гл.* кіпяціцца.

**ЗАКІПЯЦІ́ЦЬ** *гл.* кіпяціць.

**ЗА́КІС**, -у, *м.* (спец.). У хіміі: ніжэйшая ступень акіслення элемента. *З. медзі.* ‖ *прым.* **за́кісны**, -ая, -ае.

**ЗАКІ́СЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які закіс. *З. булён.* **2.** Занадта кіслы (разм.). *З. квас.*

**ЗАКІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; закі́с, -сла; -ні; *зак.* Стаць кіслым. *Цеста закісла. З. у адзіноце* (перан.; разм.). ‖ *незак.* **закіса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **закіса́нне**, -я, *н.*

**ЗАКІТАВА́ЦЬ** *гл.* кітаваць.

**ЗАКЛА́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** Аддача (рэчы, маёмасці) у забеспячэнне абавязацельстваў, у пазыку. *Узяць грошы пад з. Дакумент у закладзе.* **2.** Рэч, грошы, на якія паспрачаліся. *Выйграць з. Ісці ў з.* або *біцца аб з.* (перан.: спрачацца на грошы або што-н. іншае). ‖ *прым.* **закладны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**ЗАКЛАДА́ЦЦА** *і* **ЗАКЛА́ДВАЦЦА** *гл.* закласціся.

**ЗАКЛАДА́ЦЬ** *і* **ЗАКЛА́ДВАЦЬ** *гл.* закласці, залажыць.

**ЗАКЛА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** *гл.* закласці, залажыць. **2.** Палоска паперы або стужка, якая ўкладаецца ў кнігу, каб адзначыць патрэбную старонку. *Кніга з закладкай.* ‖ *прым.* **закла́дачны**, -ая, -ае.

**ЗАКЛАДНА́Я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* (уст.). Дакумент аб закладзе маёмасці.

**ЗАКЛА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Асоба, якая здае ў заклад рэчы, маёмасць. ‖ *ж.* **закла́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **закла́дчыцкі**, -ая, -ае.

**ЗАКЛАПАЦІ́ЦЬ**, -пачу́, -по́ціш, -по́ціць; -по́чаны; *зак., каго-што.* Прычыніць клопат. *Гэта мяне заклапаціла.* ‖ *незак.* **заклапо́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАКЛАПО́ЧАНЫ**, -ая, -ае. Ахоплены клопатам, турботай, які выражае клопат, турботу. *Заклапочаная жанчына. З. выгляд. Заклапочана* (прысл.) *пазіраць па баках.* ‖ *наз.* **заклапо́чанасць**, -і, *ж.*

**ЗАКЛА́СЦІ**, -ладу́, -ладзе́ш, -ладзе́; -ладзём, -ладзяце́, -ладу́ць; -ла́ў, -ла́ла; -ладзі́; -ла́дзены; *зак., што.* **1.** Пакласці што-н. за што-н. або змясціць куды-н. з пэўнай мэтай. *З. рукі за спіну. З. набой у стрэльбу.* **2.** Заняць, запоўніць прастору чым-н. *З. стол кнігамі. З. прабоіну ў сцяне цэглай.* **3.** Паклаўшы аснову, пачаць будаўніцтва чаго-н. *З. фундамент дома. З. сад. З. асновы выхавання дзіцяці* (перан.). **4.** Пакласці, змясціць для захавання (спец.). *З. дзесяць ям сіласу на зіму.* **5.** Уставіць што-н. паміж чым-н. (або ў што-н.), каб адзначыць. *З. патрэбнае месца ў кнізе закладкай.* **6.** Аддаць у заклад (у 1 знач.). *З. гадзіннік.* **7.** *безас.* Пра хваравітае адчуванне цяжару ў грудзях, носе, вушах (разм.). *Заклала вушы. Грудзі заклала.* ‖ *незак.* **заклада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **закла́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **заклада́нне**, -я, *н.*, **закла́дванне**, -я, *н. і* **закла́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 3—5 знач.).

**ЗАКЛА́СЦІСЯ**, -ладу́ся, -ладзе́шся, -ладзе́цца; -ладзёмся, -ладзяце́ся, -ладу́цца; -ла́ўся, -ла́лася; -ладзі́ся; *зак.* (разм.). Пайсці ў заклад, паспрачацца на што-н. *Я магу з., што ён гэта зрабіў ненаўмысна.* ‖ *незак.* **заклада́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **закла́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАКЛЕ́ІЦЬ**, -е́ю, -е́іш, -е́іць; -е́ены; *зак., што.* Закрыць, змацаваць чым-н. клейкім. *З. канверт. З. вокны на зіму. З. ранку пластырам.* ‖ *незак.* **закле́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **закле́йванне**, -я, *н. і* **закле́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.*

**ЗАКЛЕЙМАВА́ЦЬ** *гл.* клеймаваць.

**ЗАКЛЁПАЧНЫ** *гл.* заклёпка, закляпаць.

**ЗАКЛЁПВАННЕ** *гл.* закляпаць.

**ЗАКЛЁПВАЦЬ** *гл.* закляпаць.

**ЗАКЛЁПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* **1.** *гл.* закляпаць. **2.** *мн.* -і, -пак. Металічны шпень, які замацаваны або якім замацоўваюць. ‖ *прым.* **заклёпачны**, -ая, -ае.

**ЗА́КЛІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Кліч, прызыўны гук. *Птушыны з.* **2.** Запрашэнне, просьба прыйсці, з'явіцца куды-н. *Пачуць чый-н. з. Адгукнуцца на чый-н. з. З. на дапамогу.* **3.** Зварот, які ў лаканічнай форме выражае кіруючую ідэю, палітычнае патрабаванне; лозунг. ‖ *прым.* **за́клікавы**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**ЗАКЛІКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які заклікае, заве. *З. звон.*

**ЗАКЛІ́КАЦЬ**, -і́чу, -і́чаш, -і́ча; -і́ч; -і́каны; *зак.* **1.** *каго.* Паклікаць, запрасіць куды-н. *З. у госці. З. у хату.* **2.** *каго-што, да чаго, на што.* Звярнуцца з заклікам зрабіць што-н., прыняць удзел у чым-н. *З. выбаршчыкаў аддаць галасы за кандыдатаў у дэпутаты. З. да барацьбы* або *на барацьбу. Ён закліканы быць пісьменнікам* (перан.: мае прызванне да літаратурнай творчасці). **3.** *каго (што), да чаго.* Запатрабаваць паводзіць сябе так або інакш. *З. да парадку.* ‖ *незак.* **закліка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗАКЛІНАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нуе́цца; *зак.* Перастаць рухацца ў выніку пашкоджання, шчыльнага прыцісканне да чаго-н. *Затвор вінтоўкі заклінаваўся.* ‖ *незак.* **закліно́ўвацца**, -аецца.

**ЗАКЛІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* Замацаваць пры дапамозе кліна. *З. тапарышча.* ‖ *незак.* **закліно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **закліно́ўванне**, -я, *н.*

**ЗАКЛІНА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто заклінае (у 2 знач.). *З. змей.* ‖ *ж.* **закліна́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЗАКЛІНА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* заклінаць. **2.** У народных уяўленнях: магічныя словы, якімі заклінаюць (у 2 знач.). *Гаварыць заклінанні.*

**ЗАКЛІНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *каго (што).* Настойліва прасіць, маліць аб чым-н. *З. памяццю бацькоў.* **2.** *каго-што.* У прымхлівых людзей: падпарадкоўваць сабе сілай магічных слоў, малітваў. *З. змей. З. скарб.* ‖ *наз.* **закліна́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **заклінальны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ЗАКЛУБІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -бі́цца; *зак.* Пачаць клубіцца. *Пыл заклубіўся.*

**ЗАКЛЮЧА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* Быць сутнасцю чаго-н., зводзіцца да чаго-н. *У яго словах заключаўся глыбокі сэнс.*

**ЗАКЛЮЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* заключыць. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Утрымліваць у сабе, мець у сваім складзе. *Кніга заключае ў сабе многа цікавага.*

**ЗАКЛЮ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Апошні, завяршальны. *З. канцэрт. Заключнае слова.*

**ЗАКЛЮЧЫ́ЦЬ**, -ючу́, -ю́чыш, -ю́чыць; *зак.* **1.** *са злуч.* «што» *і без дап.* Зрабіць вывад. *Урач заключыў, што ў хворага запаленне лёгкіх.* **2.** *што.* Прыняць, падпісаць. *З. пагадненне. З. дагавор.* ‖ *незак.* **заключа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **заключэ́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ЗАКЛЮЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* заключыць. **2.** Сцверджанне, якое з'яўляецца вывадам з чаго-н. *Прыйсці да заключэння. З. эксперта.* **3.** Апошняя частка, канец чаго-н. *Цікавае з. п'есы.* ◊ **У заключэнне** — пад канец, заканчваючы што-н.

**ЗАКЛЯВА́ЦЬ**, -люю́, -люе́ш, -люе́; -люём, -люяце́, -люю́ць; -лю́й; -ля́ваны; *зак., каго (што).* **1.** Клююючы, забіць або замучыць, задзяўбці. *Варона заклявала гусяня.* **2.** *перан.* Замучыць нападкамі, прыдзіркамі (разм.).

**ЗАКЛЯПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Расплюскаць канец заклёпкі, шпяня і пад., змацоўваючы імі што-н. *З. болт.* ‖ *незак.* **заклёпваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **заклёпванне**, -я, *н. і* **заклёпка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* ‖ *прым.* **заклёпачны**, -ая, -ае.

**ЗАКЛЯ́ТЫ**, -ая, -ае. Непрымірымы, вечны (пра ворага, праціўніка). *З. вораг.*

**ЗАКЛЯ́ЦЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (уст.). Тое, што і *заклінанне* (у 2 знач.); клятва, зарок. *Даў сабе з. не рабіць глупства.*

**ЗАКО́ЛВАЦЦА** *гл.* закалоцца.

**ЗАКО́ЛВАЦЬ** *гл.* закалоць[1].

**ЗАКО́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Шпілька для валасоў.

**ЗАКО́Н**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Сувязь і ўзаемазалежнасць якіх-н. з'яў аб'ек-

тыўнай рэчаіснасці. *З. развіцця прыроды. З. нераўнамернага развіцця капіталізму.* **2.** -а. Пастанова дзяржаўнай улады, якая мае найвышэйшую юрыдычную сілу. *Канстытуцыя — асноўны з. суверэннай дзяржавы. Кодэкс законаў аб працы. Рабіць па законе.* **3.** -у. Агульнапрынятае правіла, тое, што прызнаецца абавязковым. *Загад камандзіра — з. для падначаленых.*

**ЗАКОНА...** (а таксама **закана...**). Першая састаўная частка складаных слоў, якая ўказвае на адносіны да закона, законаў і пішацца, калі націск у другой частцы падае не на першы склад, напр.: *законапарадак, законапраект.*

**ЗАКОНАПАЛАЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* Закон або сукупнасць законаў (у 2 знач.) у якой-н. галіне права.

**ЗАКОНАПРАЕ́КТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Праект закона (у 2 знач.).

**ЗАКО́ННАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* законны. **2.** Няўхільнае выкананне законаў, становішча, пры якім грамадскае жыццё і дзейнасць забяспечваюцца законамі.

**ЗАКО́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). **1.** Знаўца законаў (у 2 знач.); заканазнавец. **2.** Той, хто строга прытрымліваецца закона (у 2 знач.). ‖ *ж.* **зако́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЗАКО́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адпавядае закону (у 2 і 3 знач.), грунтуецца на законе (у 2 і 3 знач.). *З. дакумент. З. прыём барацьбы. На законных падставах.* **2.** *перан.* Цалкам зразумелы і дапушчальны; абгрунтаваны. *З. папрок.* ‖ *наз.* **зако́ннасць**, -і, *ж.*

**ЗАКО́НЧАНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Які мае неабходную паўнату, цэласнасць. *Закончаная думка. З. сказ.* **2.** Які дасягнуў дасканаласці ў якой-н. справе, мастацтве, цалкам сфарміраваны (кніжн.). *З. майстар. З. мастак.* **3.** Пра чалавека як носьбіта адмоўных якасцей. *З. нягоднік.*

**ЗАКО́НЧАНЫ**[2]. ○ **Закончанае трыванне** — у граматыцы: катэгорыя дзеяслова, што паказвае, як адбываецца названае дзеясловам дзеянне ў часе (напр., завершанае, незавершанае дзеянне); *проціл.* незакончанае трыванне.

**ЗАКО́НЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* Прыйсці к канцу; завяршыцца, скончыцца. *Сход закончыўся позна вечарам. Жніво закончылася дажынкамі.* ‖ *незак.* **зака́нчвацца**, -аецца.

**ЗАКО́НЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Давесці да канца; завяршыць, скончыць. *З. будаўніцтва.* ‖ *незак.* **зака́нчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАКО́ПВАЦЦА** *гл.* закапа́цца.

**ЗАКО́ПВАЦЬ** *гл.* закапа́ць.

**ЗАКО́РМЛІВАЦЬ** *гл.* закарміць.

**ЗАКО́СКІ**, -сак. Пачатак касьбы. *Учора справілі з.*

**ЗАКО́Т**, -а, *М* -ко́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Франтон з тонкага звычайнага часанага бярвення. **2.** Абрывістае глыбокае месца ў рацэ (разм.). *Хлопчык трапіў у з. і ўтапіўся.* ‖ *прым.* **зако́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Закотнае акенца.*

**ЗАКО́ЎВАЦЬ** *гл.* закаваць.

**ЗАКО́ЧВАЦЦА** *гл.* закаціцца.

**ЗАКО́ЧВАЦЬ** *гл.* закаціць.

**ЗАКРАДА́ЦЦА** *і* **ЗАКРА́ДВАЦЦА** *гл.* закрасціся.

**ЗАКРАНУ́ЦЬ**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -няце́, -нуць; -ні́; -ну́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Даткнуцца да каго-, чаго-н. пры руху. *Куля закранула косць. З. самалюбства* (перан.). **2.** *перан., што.* Пры размове, гутарцы спыніцца на чым-н., звярнуць увагу на што-н. *З. балючае пытанне.* ‖ *незак.* **закрана́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗАКРА́ПАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *зак.* Пачаць крапаць. *Пад вечар закрапаў дожджык.*

**ЗАКРА́СА**, -ы, *ж.* Прыправа ў ежу. *Сала — найлепшая з. для першых страў. Няма мяса, то і жук не з.* (прыказка).

**ЗАКРА́СІЦЬ**, -ра́шу, -ра́сіш, -ра́сіць; -ра́шаны; *зак., што.* Палажыць у што-н. закрасу; заправіць. *З. капусту смятанай.* ‖ *незак.* **закра́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАКРА́СЦІСЯ**, -ра́дуся, -ра́дзешся, -ра́дзецца; -ра́ўся, -ра́лася; *зак.* **1.** Пранікнуць куды-н. крадком, употай. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Непрыметна з'явіцца, узнікнуць. *Закралася падазронасць.* ‖ *незак.* **закрада́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **закра́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАКРА́ТАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Пачаць кратацца; варушыцца.

**ЗАКРА́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Пачаць кратаць; варушыць. *З. пальцамі.*

**ЗАКРО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., што* (спец.). Скроіць, выкраіць. ‖ *незак.* **закро́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **закро́й**, -ю, *м.* ‖ *прым.* **закро́йны**, -ая, -ае.

**ЗАКРО́ЙШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Майстар па закроі матэрыялу для шыцця адзення. ‖ *ж.* **закро́йшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **закро́йшчыцкі**, -ая, -ае (разм.).

**ЗАКРО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак.* Пачаць крочыць.

**ЗАКРУГЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* закругліць. **2.** *мн.* -і, -яў. Закругленая частка чаго-н. *На закругленні дарогі.*

**ЗАКРУ́ГЛЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае круглую форму, акруглы. **2.** *перан.* Пра стыль мовы: гладкі, стройны. *Закругленая фраза.* ‖ *наз.* **закру́гленасць**, -і, *ж.*

**ЗАКРУГЛІ́ЦЦА**, -углю́ся, -у́глішся, -у́гліцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць круглым, закругленым. *Бераг возера закругліўся.* **2.** *перан.* Скараціць выклад, каб хутчэй яго закончыць (разм., жарт.). *Дакладчык закругліўся.* ‖ *незак.* **закругля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **закругле́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ЗАКРУГЛІ́ЦЬ**, -углю́, -у́гліш, -у́гліць; -у́глены; *зак., што.* **1.** Зрабіць круглым ці больш круглым. *З. вугал.* **2.** *перан.* Прыдаць стройнасць і закончанасць. *З. фразу.* **3.** *перан.* Скончыць, завяршыць (разм.). *З. год з добрымі вытворчымі паказчыкамі.* ‖ *незак.* **закругля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **закругле́нне**, -я, *н.*

**ЗАКРУЖЫ́ЦЦА**, -ужу́ся, -у́жышся, -у́жыцца; *зак.* Пачаць кружыцца. *Галава закружылася.*

**ЗАКРУЖЫ́ЦЬ**, -ужу́, -у́жыш, -у́жыць; *зак.* Пачаць кружыць. *Закружыла завіруха.* ◊ **Закружыць галаву** *каму* (разм., неадабр.) — моцна захапіць, пазбавіўшы здольнасці цвяроза разважаць.

**ЗАКРУЦІ́ЦЦА**, -учу́ся, -у́цішся, -у́ціцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Завіцца (пра валасы). *Валасы закруціліся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Абматацца, абвіцца вакол чаго-н. *Пуга закруцілася вакол пугаўя.* **3.** Абматаць, абгарнуць сябе чым-н. *З. ў коўдру.* **4.** Стаміцца, змучыцца ад розных клопатаў (разм.). *Столькі спраў, зусім закруціўся.* **5.** Пачаць круціцца. *Кола закруцілася.* ‖ *незак.* **закру́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАКРУЦІ́ЦЬ**[1], -учу́, -у́ціш, -у́ціць; -у́чаны; *зак.* **1.** *што.* Круцячы, завіць, загнуць, заламаць або завязаць чым-н. *З. вусы. З. рукі.* **2.** *што.* Абматаць вакол чаго-н. *З. хустку на галаву.* **3.** *каго-што.* Загарнуць у што-н., абматаць чым-н. *З. дзіця ў коўдру.* **4.** *што.* Круцячы, зашрубаваць, закрыць. *З. гайку. З. кран.* ◊ **Закруціць галаву** *каму* (разм., неадабр.) — моцна захапіць, пазбавіўшы здольнасці цвяроза разважаць. *З. галаву дзяўчыне.* ‖ *незак.* **закру́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАКРУЦІ́ЦЬ**[2], -учу́, -у́ціш, -у́ціць; *зак.* (разм.). Пачаць круціць. *Вецер закруціў лісце.*

**ЗАКРЫ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае дах, сценкі. *З. вазок.* **2.** Не для ўсіх даступны. *Закрытае пасяджэнне* (пасяджэнне пры зачыненых дзвярах, не публічнае). *З. конкурс* (з пэўнай колькасцю ўдзельнікаў). **3.** Скрыты, унутраны (спец.). *Працякаць у закрытай форме* (пра хваробу). *З. пералом.* ○ **Закрытае галасаванне** — тайнае галасаванне. **Закрытае мора** — мора, усе берагі якога належаць адной дзяржаве. **Закрытая навучальная ўстанова** — навучальная ўстанова, у якой навучэнцы жывуць на поўным утрыманні.

**ЗАКРЫ́ЦЦА**, -ы́юся, -ы́ешся, -ы́ецца; *зак.* **1.** *гл.* закрыць. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра магазіны, установы і пад.: спыніць работу. *Магазін закрыўся. Выстаўка закрылася.* ‖ *незак.* **закрыва́цца**, -а́ецца (да 2 знач.).

**ЗАКРЫ́ЦЬ**, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Накрыць, прыкрыць чым-н. *З. коўдрай. З. твар рукамі.* **2.** *што.* Скласці, самкнуць што-н. раскрытае. *З. парасон. З. кнігу. З. вочы.* **3.** *што.* Загарадзіць, перагарадзіць (уваход, выхад і пад.), спыніць доступ куды-н. *З. уваход. З. граніцу.* **4.** *што.* Спыніць, пакласці канец правядзенню, дзеянню, дзейнасці чаго-н. *З. сход. З. прадпрыемства. З. гандаль.* ‖ *незак.* **закрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **закры́цца**,

-ыюся, -ыешся, -ыецца (да 1 і 4 знач.); *незак.* **закрываацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **закрыццё**, -я, *н.* (да 3 і 4 знач.). *З. сезона.*

**ЗАКРЫЧАЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чым, -чыцё, -чаць; -чы; *зак.* **1.** Крыкнуць. *З. ад болю.* **2.** Пачаць крычаць. *Закрычалі «брава».*

**ЗАКРЫШТАЛІЗАВАЦЦА** *гл.* крышталізавацца.

**ЗАКРЫШТАЛІЗАВАЦЬ** *гл.* крышталізаваць.

**ЗАКРЭМЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Закрэсліць напісанае мноствам ліній. *З. цэлыя старонкі рукапісу.*

**ЗАКРЭПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* Прыстасаванне для замацавання чаго-н. ‖ *прым.* **закрэпачны**, -ая, -ае.

**ЗАКРЭСЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Правесці рысу па тэксце, малюнку, каб зрабіць іх несапраўднымі. *З. напісанае. З. чые-н. старыя заслугі* (перан.). ‖ *незак.* **закрэсліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАКУЛІСНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адбываецца за кулісамі тэатра, у тэатры. *Закулісное жыццё.* **2.** *перан.* Скрыты, тайны. *Закулісныя перагаворы.*

**ЗАКУЛЬГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** Пачаць кульгаць. *З ночы я штосьці закульгаў.* **2.** Пайсці кульгаючы. *Закульгаў дадому.*

**ЗАКУПІЦЬ**, -уплю, -упіш, -упіць; -уплены; *зак.* **1.** *каго-што.* Купіць у вялікай колькасці або оптам. *З. прамысловае абсталяванне.* **2.** *што* і *чаго.* Запасціся пакупкай. *З. прадукты. З. дроў.* ‖ *незак.* **закупляць**, -яю, -яеш, -яе. ‖ *наз.* **закупліванне**, -я, *н.*, **закуп**, -у, *мн.* -ы, -паў, *м.* і **закупка**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* ‖ *прым.* **закупачны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *Закупачныя цэны.*

**ЗАКУПОРЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* Закрыцца шчыльна, наглуха. *Бутэлька закупорылася.* ‖ *незак.* **закупорвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **закупорванне**, -я, *н.* і **закупорка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж. Закупорка вен.*

**ЗАКУПОРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* **1.** *што.* Заткнуць шчыльна (адтуліну ў чым-н.). *З. бочку. Тромб закупорыў вену.* **2.** *каго (што).* Прымусіць сядзець у памяшканні (разм.). *З. у чатырох сценах.* ‖ *незак.* **закупорваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **закупорванне**, -я, *н.* і **закупорка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.*

**ЗАКУПШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто робіць закупку, займаецца закупкай чаго-н. ‖ *ж.* **закупшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЗАКУРОДЫМЕЦЬ** *гл.* куродымець.

**ЗАКУРОДЫМІЦЦА**, -млюся, -мішся, -міцца; *зак.* Пакрыцца сажай, куродымам. *Шкло ў лямпе закуродымілася.* ‖ *незак.* **закуродымлівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАКУРОДЫМІЦЬ** *гл.* куродыміць.

**ЗАКУРОДЫМЛЕНЫ**, -ая, -ае. Пакрыты сажай, куродымам. *Закуродымленая столь.*

**ЗАКУРЫЦЦА**[1], -урыся, -урышся, -урыцца; *зак.* Пакрыцца сажай, задыміцца. *Сцены закурыліся ад дыму.* ‖ *незак.* **закурвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАКУРЫЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -урыцца; *зак.* Пачаць курыцца (у 1 і 3 знач.).

**ЗАКУРЫЦЬ**[1], -уру, -урыш, -урыць; -ураны; *зак., каго-што.* Пакрыць сажай, задыміць, закуродыміць. ‖ *незак.* **закурваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАКУРЫЦЬ**[2], -уру, -урыш, -урыць; *зак.* **1.** *што, чаго* і *без дап.* Запаліць і пачаць курыць. *З. люльку.* **2.** Стаць курцом. *Ён рана закурыў.* ‖ *незак.* **закурваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАКУРЭЛЫ**, -ая, -ае. Пакрыты сажай, закураны. *Закурэлыя чалеснікі.*

**ЗАКУРЭЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -эецца; *зак.* **1.** Задыміцца. *На пажарніку вопратка закурэлася.* **2.** Падняцца віхрам. *Пыл закурэўся.*

**ЗАКУРЭЦЬ**[1], -эю, -эеш, -эе; *зак.* Пакрыцца сажай, задыміцца[1]. *Сцены ў лазні закурэлі.*

**ЗАКУРЭЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -эе; *зак.* Пачаць курэць. *Галавешка закурэла.*

**ЗАКУСАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго (што)* (разм.). Скусаць, замучыць укусамі. *Закусалі камары.*

**ЗАКУСАЧНАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Грамадская сталовая, у якой падаюць проста згатаваныя, звычайна халодныя стравы.

**ЗАКУСІЦЬ**[1], -ушу, -усіш, -усіць; -ушаны; *зак., што.* Моцна захапіць зубамі. *З. губу. З. цуглі.* ‖ *незак.* **закусваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАКУСІЦЬ**[2], -ушу, -усіш, -усіць; *зак.* **1.** *што, чым* і *без дап.* Заесці выпітае (віно, гарэлку і пад.). **2.** Крыху паесці, перакусіць перад дарогай (разм.). ‖ *незак.* **закусваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **закусванне**, -я, *н.* і **закуска**, -і, *ДМ* -кусцы, *ж.*

**ЗАКУСКА**, -і, *ДМ* -кусцы, *ж.* **1.** *гл.* закусіць[2]. **2.** *мн.* -і, -сак. Ежа, страва, якой закусваюць. *Халодныя закускі. На закуску* (таксама перан.: пад канец, у заключэнне; разм.). ‖ *прым.* **закусачны**, -ая, -ае.

**ЗАКУСЬ**, -і, *ж.* (разм.). Тое, што і *закуска* (у 2 знач.).

**ЗАКУТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Цёмны, цесны вугал, куток. **2.** *перан.* Глухое, аддаленае ад культурных цэнтраў месца.

**ЗАЛА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Вялікае памяшканне для публічных сходаў, для занядкаў чым-н. і іншых мэт. *Актавая з. Чытальная з.* **2.** Прасторны парадны пакой для прыёму гасцей. ‖ *прым.* **зальны**, -ая, -ае.

**ЗАЛАГОДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго (што).* Тое, што і *задобрыць.* ‖ *незак.* **залагоджваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЛАДЗІЦЬ**[1], -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Забіўшы, зараўнаваўшы, закрыць наглуха. *З. дзірку ў плоце.* ‖ *незак.* **заладжваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **заладжванне**, -я, *н.*

**ЗАЛАДЗІЦЬ**[2], -джу, -дзіш, -дзіць; *зак., з інф., што* і *без дап.* (разм.). **1.** Паўтараючыся, гаварыць адно і тое ж. *Заладзіў і вярзе адно і тое ж.* **2.** Пачаць зацяжна ісці (пра дождж), дзьмуць (пра вецер). *Заладзіў дождж надоўга.*

**ЗАЛАЖЫЦЦА**, -лажуся, -ложышся, -ложыцца; *зак.* **1.** Пайсці ў заклад на што-н. *Хлопцы залажыліся, пабачым, хто выйграе.* **2.** Дружна ўзяцца за работу. *Мы як залажыліся, дык да вечара і зрабілі.*

**ЗАЛАЖЫЦЬ**, -лажу, -ложыш, -ложыць; -ложаны; *зак., што.* Тое, што і *закласці.* ‖ *незак.* **закладаць**, -аю, -аеш, -ае і **закладваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **закладанне**, -я, *н.*, **закладванне**, -я, *н.* і **закладка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.*

**ЗАЛАЗІЦЬ** *гл.* залезці.

**ЗАЛАМАЦЬ**, -ламлю, -ломіш, -ломіць; -ламаны; *зак., што.* **1.** Сагнуўшы, надламаць. *З. галінку на дрэве.* **2.** Сагнуўшы, адкінуць уверх або назад. *З. рукі.* **3.** Запрасіць надта дорага (разм.). *З. страшэнную цану.* ◊ **Асінку заламаць** (разм.) — даць зарок не рабіць што-н. **Заламаць шапку** (разм.) — надзець набакір або ссунуць на патыліцу. ‖ *незак.* **заломліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЛАПАТАЦЬ**, -пачу, -почаш, -поча; -пачы; *зак.* Пачаць вельмі хутка, неразборліва гаварыць. *Прахожы спыніўся і штосьці залапатаў.*

**ЗАЛАПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак., што* (разм.). Часта чапаючы, лапаючы, забрудзіць. *З. фіранку.* ‖ *незак.* **залапваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЛАТА...** (*гл.* **золата...**). Першая састаўная частка складаных слоў, якая ўжыв. замест «золата...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *залатагрывы, залатаструнны.*

**ЗАЛАТАВЕРХІ**, -ая, -ае. У народнай паэзіі: з пазалочаным верхам, купалам. *З. палац.*

**ЗАЛАТАНОСНЫ**, -ая, -ае. Які мае ў сваім саставе золата (пра радовішча). *З. пясок.* ‖ *наз.* **залатаноснасць**, -і, *ж.*

**ЗАЛАТАЦЬ** *гл.* латаць.

**ЗАЛАТАШВЕЙНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да шыцця золатам (у 3 знач.). *Залаташвейная майстэрня.*

**ЗАЛАТНІК**[1], -а, *мн.* -і, -оў, *м.* Старая мера масы, роўная 1/96 фунта або 4,26 грама. *Малы з., ды дарагі.*

**ЗАЛАТНІК**[2], -а, *мн.* -і, -оў, *м.* (спец.). Механізм для аўтаматычнага кіравання патокам пары, вадкасці або газу ў цеплавых, гідраўлічных і пнеўматычных механізмах. ‖ *прым.* **залатніковы**, -ая, -ае.

**ЗАЛАТОЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -товак, *ж.* (уст.). Манета ў пятнаццаць капеек.

**ЗАЛАТУХА**, -і, *ДМ* -тусе, *ж.* Дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца агульным знясіленнем, высыпкай на целе і пад. ‖ *прым.* **залатушны**, -ая, -ае. *Залатушнае дзіця.*

**ЗАЛАТЫ**, -ая, -ое. **1.** *гл.* золата. **2.** *у знач. наз.* **залаты**, -ога, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Мане-

та з золата, чырвонец. **3.** Колеру золата, бліскуча-жоўты. *Залатыя валасы. Залатая восень.* **4.** *перан.* Шчаслівы, радасны. *З. час. З. век.* **5.** *перан.* Цудоўны, выдатны. *З. чалавек. Залатыя рукі* (умелыя). **6.** *перан.* Дарагі, любімы. *Залатыя мае дзеткі.* ○ **Залатое сячэнне** (спец.) — гарманічная прапорцыя, у якой адна частка адносіцца да другой, як усё цэлае да першай часткі. ◊ **Залатая моладзь** — пра моладзь з забяспечаных слаёў грамадства, якая вядзе марнатраўнае жыццё. **Залатая сярэдзіна** — пра спосаб дзеяння, пры якім пазбягаюць крайнасцей, рызыкі, смелых рашэнняў. **Залатое вяселле** (разм.) — пяцідзесяцігоддзе сямейнага жыцця. **Залатое дно** — пра невычэрпную крыніцу багацця, даходу.

**ЗАЛАЦІСТА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: з залацістым адценнем, напр.: *залаціста-аранжавы, залаціста-белы, залаціста-бліскучы, залаціста-пурпуровы, залаціста-русы, залаціста-рыжы, залаціста-саламяны, залаціста-чырвоны.*

**ЗАЛАЦІ́СТЫ**, -ая, -ае. Колеру золата, з бліскуча-жоўтым адлівам. *Залацістыя зоры. Залацістыя валасы.* ‖ *наз.* **залаці́стасць**, -і, *ж.*

**ЗАЛАЦІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., залоціцца; *незак.* **1.** Станавіцца залатым. *Жыта залоціцца.* **2.** Віднецца (пра што-н. залатое, залацістае). *У далечыні залоцяцца пяскі.*

**ЗАЛАЦІ́ЦЬ**, -лачу́, -ло́ціш, -ло́ціць; *незак., што.* **1.** Пакрываць золатам, пазалотай. *З. лыжкі.* **2.** Асвятляючы, надаваць чаму-н. залацісты колер. *Сонца залоціць лес.* ‖ *зак.* **вы́залаціць**, -лачу, -лаціш, -лаціць; -лачаны (да 1 знач.) *і* **пазалаці́ць**, -лачу́, -ло́ціш, -ло́ціць; -ло́чаны. ‖ *наз.* **залачэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.); *прым.* **залаці́льны**, -ая, -ае (спец.).

**ЗАЛАЧО́НЫ** *і* **ЗАЛО́ЧАНЫ**, -ая, -ае. Пакрыты слоем золата. *З. купал.*

**ЗАЛА́ШЧЫЦЬ**, -шчу, -шчыш, -шчыць; -шчаны; *зак., каго-што* (разм.). Стаміць, змучыць ласкамі. *З. шчаня.*

**ЗАЛВІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́ц, *ж.* Мужава сястра. *З. не сястрыца* (з нар.).

**ЗАЛГА́ЦЦА**, -лгу́ся, -лжэ́шся, -лжэ́цца; -лжо́мся, -лжаце́ся, -лгу́цца; -лжы́ся; *зак.* (разм.). Лгучы, зусім заблытацца.

**ЗАЛЕ́ГЧЫ**, -ля́гу, -ля́жаш, -ля́жа; -лёг, -ле́гла *і* -лягла́, -ло́; заля́ж; *зак.* **1.** Легчы надоўга. *З. ў логава.* **2.** Размясціцца дзе-н. скрытна. *З. ў засаду. З. ў акопах.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Размясціцца, памясціцца. *Руда залегла на глыбіні двух метраў. Трывога залягла ў сэрцы* (запала). ‖ *незак.* **заляга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2 і 3 знач.).

**ЗАЛЕДЗЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Пакрыты лёдам, абледзянелы. *Заледзянелыя шыбы.*

**ЗАЛЕДЗЯНЕ́ЦЬ** *гл.* ледзянець.

**ЗАЛЕ́ЖВАЦЦА** *гл.* заляжацца.

**ЗАЛЕ́ЖНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Адносіны адной з'явы да другой як выніку да прычыны. *З. рынычных цэн ад попыту. У залежнасці ад абставін.* **2.** Падпарадкаванасць іншым, чужой уладзе, волі. *Прыгонная з. Быць у залежнасці.* **3.** У граматыцы: фармальная падпарадкаванасць аднаго слова ці сказа другому. *З. даданага сказа ад галоўнага.*

**ЗАЛЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца ў залежнасці. *З. чалавек. Залежныя краіны.* **2.** Абумоўлены чым-н., які ўтрымлівае ў сабе залежнасць (у 2 знач.). *Залежнае становішча.* **3.** Які выражае залежнасць (у 3 знач.; спец.). *Залежнае слова.* **4.** У граматыцы: які мае адносіны да форм дзеяслова, якія абазначаюць, што суб'ект падвяргаецца дзеянню з боку аб'екта. *З. стан. Дзеепрыметнік залежнага стану.*

**ЗА́ЛЕЖЫ**, -аў. **1.** Месца залягання карысных выкапняў (спец.). *З. медзі.* **2.** Няходкі, заляжалы тавар. *На складах з. тавараў.* ‖ *прым.* **за́лежны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**ЗАЛЕ́ЗЦІ**, -зу, -зеш, -зе; -ле́з, -ле́зла; -ле́зь; *зак.* **1.** *на што.* Падняцца, забрацца. *З. на дрэва.* **2.** *у што.* Увайсці, пранікнуць куды-н. (разм.). *З. ў машыну. З. ў ваду. З. ў кішэню.* ◊ **Залезці ў доўг** — стаць даўжніком каго-н. ‖ *незак.* **зала́зіць**, -а́жу, -а́зіш, -а́зіць.

**ЗАЛЕ́ННЕ** *гл.* заліць².

**ЗАЛЕ́ПЛІВАЦЬ** *гл.* заляпіць.

**ЗАЛЕ́ТАСЬ**, *прысл.* Два гады назад. *Гэта адбылося з.*

**ЗАЛЕ́ТАШНІ**, -яя, -яе. Які папярэднічае леташняму, які адбыўся залетась або захаваўся ад пазамінулага года. *З. год. Залеташнія падзеі.*

**ЗАЛЕ́ЧВАЦЦА** *гл.* залячыцца.

**ЗАЛЕ́ЧВАЦЬ** *гл.* залячыць.

**ЗАЛЁТ** *гл.* заляцець.

**ЗАЛЁТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ахвотнік заляцацца да жанчын. ‖ *прым.* **залётніцкі**, -ая, -ае. *Залётніцкія паводзіны.*

**ЗАЛЁТНЫ**[1], -ая, -ае. Які выпадкова або ненадоўга заляцеў куды-н. *Залётная птушка.*

**ЗАЛЁТНЫ**[2], -ая, -ае. Звязаны з залётамі; які выражае заляцанне. *Залётныя позіркі.*

**ЗАЛЁТЫ**, -аў. Імкненне выклікаць прыхільнасць жанчыны, заляцанне.

**ЗАЛІВА́ЦЦА** *гл.* заліцца[1–2].

**ЗАЛІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* заліць[1]. **2.** Ілгаць, расказваць байкі (разм., неадабр.). *Не залівай, усё роўна не паверым.* **3.** Многа, часта піць (разм.). *Апошні час ён вельмі залівае.*

**ЗАЛІ́ВІСТЫ**, -ая, -ае. Гучны, пералівісты, з беспярэпыннымі пераходамі з аднаго тону ў другі. *З. смех. З. звон званка.* ‖ *наз.* **заліві́стасць**, -і, *ж.*

**ЗАЛІЗА́ЦЬ**, -іжу́, -і́жаш, -і́жа; -іжы́; -і́заны; *зак., што.* **1.** Лізаннем ачысціць. *З. рану.* **2.** Шчыльна і гладка прычасаць (валасы; разм.). ‖ *незак.* **залі́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЛІ́К**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Від праверачных іспытаў (у вышэйшай школе, у спартыўных установах і пад.), а таксама адзнака аб праходжанні такіх іспытаў. *Здаць з. Атрымаць з.* ‖ *прым.* **залі́ко́вы**, -ая, -ае. *Заліковая кніжка* (для адзнак аб здадзеных экзаменах, заліках).

**ЗАЛІ́Ў**, -лі́ва, *мн.* -лі́вы, -лі́ваў, *м.* Водная прастора, якая ўразаецца ў сушу. *Фінскі з.* ‖ *прым.* **залі́ўны**, -ая, -ае (спец.).

**ЗАЛІЎНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які заліваецца вадой у час паводак. *З. луг.* **2.** Вельмі моцны, праліўны (пра дождж). **3.** Пра страву: заліты густым наварам. *Заліўное парася. Есці заліўное* (наз.).

**ЗАЛІХВА́ЦКІ**, -ая, -ае. Удалы, хвацкі. *З. выгляд.* ‖ *наз.* **заліхва́цкасць**, -і, *ж.*

**ЗАЛІ́ЦЦА**[1], -льюся, -лье́шся, -лье́цца; -льёмся, -льяце́ся, -лью́цца *і* -ліюся, -лі́ешся, -лі́ецца; -ліёмся, -ліяце́ся, -ліюцца; -лі́ўся, -ліла́ся, -ло́ся; -лі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра вадкае: пранікнуць куды-н. *Вада залілася за каўнер.* **2.** *перан.* Пакрыцца чым-н., што выступіла на паверхню. *З. чырваннем.* **3.** Захлынуцца (разм.). *Плаваць не ўмеў і заліўся.* ‖ *незак.* **залiва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАЛІ́ЦЦА**[2], -льюся, -лье́шся, -лье́цца; -льёмся, -льяце́ся, -лью́цца *і* -ліюся, -лі́ешся, -лі́ецца; -ліёмся, -ліяце́ся, -ліюцца; -лі́ўся, -ліла́ся, -ло́ся; -лі́ся; *зак.* Пачаць спяваць або ствараць якія-н. залівістыя гукі (смяяцца, брахаць і пад.) доўга, з пералівамі. *З. салаўём* (перан.: загаварыць красамоўна, з запалам; іран.). *З. смехам.* ◊ **Заліцца слязамі** (разм.) — горка заплакаць. ‖ *незак.* **залiва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАЛІ́ЦЬ**[1], -лью, -лье́ш, -лье́; -льём, -льяце́, -лью́ць *і* -лію́, -ліе́ш, -ліе́; -ліём, -ліяце́, -ліюць; -лі́ў, -ліла́, -ліло́; залі́; -лі́ты; *зак., што.* **1.** Пакрыць скрозь вадой або іншай вадкасцю. *Рака заліла паплавы. Сонечнае святло заліло пакоі* (перан.: вельмі асвяціла). *Калоны дэманстрантаў залілі вуліцы* (перан.). **2.** Абліць, запэцкаць вадкім. *З. сшытак чарнілам.* **3.** Затушыць вадой. *З. агонь.* **4.** Напоўніць, пакрыць чым-н. вадкім, здольным зацвярдзець. *З. вуліцу асфальтам. З. каток.* **5.** Наліць, напоўніць чым-н. *З. гарачае ў бак.* ‖ *незак.* **залiва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **залі́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 4 і 5 знач.) *і* **залiва́нне**, -я, *н.*

**ЗАЛІ́ЦЬ**[2], залю, зо́ліш, зо́ліць; зо́лены *і* залёны; *незак., што* (спец.). Апрацоўваць (шкуры) растворам вапны. ‖ *наз.* **зале́нне**, -я, *н.*

**ЗАЛІЧЫ́ЦЦА**, -ічу́ся, -і́чышся, -і́чыцца; *зак.* (афіц.). Паступіць куды-н., уключыцца ў склад каго-, чаго-н. *З. на службу.* ‖ *незак.* **залі́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАЛІЧЫ́ЦЬ**, -ічу́, -і́чыш, -і́чыць; -і́чаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Уключыць у склад каго-, чаго-н., аднесці да якой-н. катэгорыі. *З. студэнтам. З. на работу. З. у адстаючыя.* **2.** *што.* Прылічыць каму-н., занесці на чый-н. рахунак. *З. на бягучы ра-*

*хунак дзвесце рублёў. З. у агульны бюджэт.* **3.** *што.* Прыняць што-н. у лік чаго-н. *З. пяць рублёў у пагашэнне доўгу.* **4.** *што.* Адобрыць, паставіўшы залік. *З. курсавую работу.* ‖ *незак.* **залі́чваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **залі́чванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **залічэ́нне**, -я, *н.*

**ЗАЛІ́ШНЕ**, *прысл.* (разм.). Звыш меры, занадта.

**ЗАЛІ́ШНІ**, -яя, -яе (разм.). Лішні, які перавышае патрэбу, неабходнасць. *Залішнія клопаты.*

**ЗАЛО́Г**, -у, *м.* **1.** Тое, што і *заклад.* **2.** *перан.* Доказ, гарантыя чаго-н. *З. дружбы.* ‖ *прым.* **зало́гавы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Залогавае абавязацельства.*

**ЗАЛО́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, гвалтоўна кім-н. затрыманая для таго, каб прымусіць выканаць якія-н. абавязацельствы або патрабаванні тую дзяржаву, арганізацыю, да якой належыць гэта асоба. ‖ *ж.* **зало́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **зало́жніцкі**, -ая, -ае.

**ЗАЛО́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -лóз, *ж.* Орган, які выпрацоўвае і выдзяляе рэчывы, неабходныя для жыццядзейнасці арганізма. *Слінная з. Малочныя залозы. Залозы ўнутранай сакрэцыі.* ‖ *памянш.* **зало́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* ‖ *прым.* **зало́зісты**, -ая, -ае (спец.). *З. эпітэлій.*

**ЗАЛО́М**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Заломленае месца на чым-н. або круты выгіб, паварот чаго-н. *З. на суку. З. акопа.* **2.** Зблытаны і заламаны чараўнікм пук жытніх сцёблаў, які, па ўяўленні забабонных людзей, мог наклікаць бяду на гаспадара нівы. *Заламаць з.*

**ЗАЛО́М**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Разнавіднасць буйнога і тлустага селядца.

**ЗАЛО́МЛІВАЦЬ** *гл.* заламаць.

**ЗАЛО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -лóвак, *ж.* Сястра мужа. *З. у мяне вельмі добрая.*

**ЗАЛО́ЧАНЫ** *гл.* залачоны.

**ЗАЛП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адначасовы выстрал з некалькіх гармат, вінтовак. *Гарматны з. па ворагу.* ‖ *прым.* **за́лпавы**, -ая, -ае (спец.).

**ЗА́ЛПАМ**, *прысл.* **1.** Адначасова з некалькіх гармат, вінтовак. *Выстралілі з.* **2.** *перан.* Адразу, без перадышкі (разм.). *Выпіць з. Расказаць усё з.*

**ЗАЛУБЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Зацвярдзелы, каляны. *Залубянелая вопратка.*

**ЗАЛУБЯНЕ́ЦЬ** *гл.* лубянець.

**ЗАЛУПІ́ЦЦА**, -уплюся, -ýпішся, -ýпіцца; *зак.* (разм.). **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Адарваўшыся, завярнуцца, загнуцца. *Скура каля пазногця залупілася.* **2.** Агаліцца, падняўшы сукенку, спадніцу, загаліцца. **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Загнуўшыся, падняцца ўгару. *Сукенка залупілася.* ‖ *незак.* **залу́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАЛУПІ́ЦЬ**, -уплю, -ýпіш, -ýпіць; -ýплены; *зак., што* (разм.). **1.** Адарваўшы, завярнуць, загнуць. *З. скуру на пальцы.* **2.** Загнуўшы, падняць угору, загаліць. *З. спадніцу.* ‖ *незак.* **залу́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЛУПЦАВА́ЦЬ**, -цýю, -цýеш, -цýе; -цýй; -цавáны; *зак., каго* (разм.). Лупцуючы, давесці да страты прытомнасці або да смерці. *З. бізуном да непрытомнасці.*

**ЗАЛУЧЫ́ЦЬ**, -учý, -ýчыш, -ýчыць; -ýчаны; *зак., каго* (разм.). Прыцягнуць да ўдзелу ў чым-н., перацягнуць на свой бок. ‖ *незак.* **залуча́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ЗАЛЫГА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; залы́ганы; *зак., каго* (разм.). **1.** Накінуць што-н. на рогі, шыю (валу, каню), зашморгнуўшы ці завязаўшы вузлом. *З. карову.* **2.** *перан.* Уцягнуць у сваю кампанію. ‖ *незак.* **залы́гваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЛЫ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Пачаць лыпаць. *З. вачамі.*

**ЗАЛЫ́СІНА**, -ы, *мн.* -ы, -сін, *ж.* **1.** Участак галавы ад ілба над скронню, не пакрыты валасамі. **2.** Месца на ствале дрэва, дзе садрана кара.

**ЗАЛЫ́СІЦЬ**, -ы́шу, -ы́сіш, -ы́сіць; -ы́шаны; *зак., што.* Счасаць кару ў якім-н. месцы на дрэве; зрабіць залысіну (у 2 знач.). *З. дрэва.*

**ЗА́ЛЬНЫ** *гл.* зала.

**ЗАЛЮБАВА́ЦЦА**, -бýюся, -бýешся, -бýецца; -бýйся; *зак., кім-чым.* Любуючыся, заглядзецца. *З. на заход сонца.*

**ЗАЛЮЛЯ́ЦЬ**[1], -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго (што).* Давесці да дрымоты, да сну, люляючы. *З. дзіця.*

**ЗАЛЮЛЯ́ЦЬ**[2], -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак.* Пачаць люляць.

**ЗАЛЯГА́ЦЬ** *гл.* залегчы.

**ЗАЛЯЖА́ЛЫ**, -ая, -ае. Які доўга ляжаў без выкарыстання, які сапсаваўся ад доўгага ляжання. *Заляжалае сукно.*

**ЗАЛЯЖА́ЦЦА**, -ляжýся, -лéжышся, -лéжыцца; -ляжы́ся; *зак.* **1.** Праляжаць надта доўга. *З. ў пасцелі. Такі тавар доўга не залежыцца.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сапсавацца ад доўгага ляжання. *Каўбаса заляжалася.* ‖ *незак.* **залéжвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАЛЯМАНТАВА́ЦЬ**, -тýю, -тýеш, -тýе; -тýй; *зак.* Пачаць лямантаваць. *Дзеці заляманталі пад акном.*

**ЗАЛЯ́ПАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Запэцкаць чым-н. вадкім, ліпкім. *З. стол цестам.*

**ЗАЛЯ́ПАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Пачаць ляпаць. *З усіх бакоў заляпалі трашчоткі.*

**ЗАЛЯПІ́ЦЬ**, -ляплю, -лéпіш, -лéпіць; -лéплены; *зак.* **1.** *гл.* ляпіць. **2.** *што чым.* Замазаць, закрыць, заладзіць чым-н. ліпкім, мяккім. *З. дзірку глінай. З. разбітую шыбу паперай.* **3.** *што чым.* Наклейваючы, пакрыць чым-н. паверхню (разм.). *Усю сцяну заляпілі афішамі.* **4.** *каму* і *што каму.* Нанесці ўдар (разм.). *З. аплявуху нахабніку. З. у вуха.* ‖ *незак.* **залéплівацъ**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЛЯЦА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак., да каго.* Аказваць увагу каму-н., імкнучыся выклікаць прыхільнасць. *З. да жанчыны.* ‖ *наз.* **заляца́нне**, -я, *н.*

**ЗАЛЯЦЕ́ЦЬ**, -ячý, -яці́ш, -яці́ць; -яці́м, -еціцé, -яцЯ́ць; -яці́; *зак.* **1.** Летучы, апынуцца дзе-н., трапіць куды-н. *Самалёт заляцеў за хмару. Птушка заляцела ў акно.* **2.** У час палёту спыніцца дзе-н. *З. на спадарожны аэрадром.* ‖ *незак.* **залята́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **залёт**, -у, *М* -лёце, *м.* (спец.).

**ЗАЛЯЧЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -лéчыцца; *зак.* (разм.). Зажыць у выніку лячэння. *Рана хутка залячылася.* ‖ *незак.* **залéчвацца**, -аецца.

**ЗАЛЯЧЫ́ЦЬ**, -лячý, -лéчыш, -лéчыць; -лéчаны; *зак.* **1.** *што.* Лечачы, загаіць што-н. *З. рану.* **2.** *каго (што).* Няўмелым лячэннем замарыць, змучыць (разм.). ‖ *незак.* **залéчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАМАГІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (разм.). Пра голас: глухі, як з магілы.

**ЗАМА́ЗАЦЦА** *гл.* мазацца.

**ЗАМА́ЗАЦЬ**, -áжу, -áжаш, -áжа; -мáж; -áзаны; *зак., што.* **1.** *гл.* мазаць. **2.** Пакрыць слоем фарбы, мазі. *З. надпіс чарнілам.* **3.** Заляпіць замазкай або чым-н. мяккім, ліпкім. *З. дзіркі ў сценах глінай.* **4.** *перан.* Знарок прыкрыць, замаскіраваць (разм.). *З. недахопы.* ‖ *незак.* **зама́зваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2—4 знач.). ‖ *наз.* **зама́званне**, -я, *н.* і **зама́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**ЗАМА́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* **1.** *гл.* замазаць. **2.** Вязкае рэчыва для замазвання шчылін, трэшчын. *Аконная з.* ‖ *прым.* **зама́зачны**, -ая, -ае.

**ЗА́МАК**, -мка, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* **1.** Палац і крэпасць феадала. *Сярэдневяковы з.* **2.** Назва некаторых палацаў, турмаў. ‖ *прым.* **за́мкавы**, -ая, -ае.

**ЗАМАКА́ЦЬ** *гл.* замокнуць.

**ЗАМА́ЛА**, *прысл.* (разм.). Малавата, занадта мала.

**ЗА́МАЛАДА**, *прысл.* У маладым узросце. *Выйшла замуж з.*

**ЗАМАЛАДЫ́**, -áя, -óе (разм.). Надта малады. *Ён з. для такой пасады.*

**ЗАМАЛЁЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -лёвак, *ж.* **1.** *гл.* замаляваць. **2.** часцей *мн.* Малюнак, накід з натуры. *Замалёўкі з натуры.*

**ЗАМАЛІ́ЦЬ**, -малю, -мóліш, -мóліць; -мóлены; *зак., што* (уст.). Молячы, выпрасіць дараванне за што-н. *З. грахі.* ‖ *незак.* **замо́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАМАЛЯВА́ЦЬ**, -люю, -люеш, -люе; -люй; -лявáны; *зак., каго-што.* **1.** Зрабіць малюнак каго-, чаго-н. *З. з натуры.* **2.** Пакрыць фарбай. *З. плямы.* ‖ *незак.* **замалёўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **замалёўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -лёвак, *ж.* і **замалёўванне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ЗАМАНІ́ЦЬ**, -аню, -áніш, -áніць; -áнены; *зак., каго (што).* **1.** Прываблііваючы чым-н., прымусіць прыйсці куды-н., апынуцца дзе-н. *З. ваўка ў пастку.* **2.** Прывабіць, зачараваць. *Нас там заманіла прырода.* ‖ *незак.* **зама́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАМА́НЛІВЫ**, -ая, -ае. Прывабны, спакуслівы. *Заманлівая перспектыва.* ‖ *наз.* **зама́нлівасць**, -і, *ж.*

**ЗА́МАРАЗКІ**, -аў. Лёгкі ранішні мароз увосень ці вясной. *Раннія з. З. на глебе.*

**ЗАМАРАЧЫ́ЦЬ** *гл.* марочыць.

**ЗАМАРДАВА́ЦЦА** *гл.* мардавацца.

**ЗАМАРДАВА́ЦЬ** *гл.* мардаваць.

**ЗАМАРКО́ЦІЦЦА**, -óчуся, -óцішся, -óціцца; *зак.* Стаць маркотным, занудзіцца. *Замаркоціўся хлопчык.*

**ЗАМАРО́ЗІЦЬ**, -óжу, -óзіш, -óзіць; -óжаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Падвергнуць дзеянню холаду, даць замерзнуць, застыць. *З. рыбу. З. садавіну.* **2.** *што.* Моцна астудзіць (разм.) *З. віно.* **3.** *што.* Абязболіць які-н. участак цела спецыяльнымі сродкамі (разм.). *З. зуб.* **4.** *перан., што.* Пакінуць на ранейшым узроўні або нявыкарыстаным. *З. сродкі. З. будаўніцтва.* ‖ *незак.* **замаро́жваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **замаро́жванне**, -я, *н.* і **замаро́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 3 знач.).

**ЗАМАРО́ЧЫЦЬ** *гл.* марочыць.

**ЗАМАРУ́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзіцца; *зак.* Стаць больш марудным. *Рух цягніка замарудзіўся.* ‖ *незак.* **замару́джвацца**, -аецца.

**ЗАМАРУ́ДЗІЦЬ**, -у́джу, -у́дзіш, -у́дзіць; -у́джаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць больш павольным, марудным. *З. крок.* **2.** *што.* Маруднымі дзеяннямі затрымаць што-н., з'яўленне чаго-н. *Надта з. выкананне пастановы.* **3.** *без дап., з інф.* або *з чым.* Затрымацца, прыпазніцца. *Знаёмы не замарудзіў прынесці кнігу. З. з адказам на пісьмо.* ‖ *незак.* **замару́джваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ЗАМАРЫНАВА́ЦЬ** *гл.* марынаваць.

**ЗАМАРЫ́ЦЦА**, -мару́ся, -мóрышся, -мóрыцца; *зак.* Стаміцца, знясіліцца. ‖ *незак.* **замóрвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАМАРЫ́ЦЬ** *гл.* марыць.

**ЗАМАСКІРАВА́ЦЦА** *гл.* маскіравацца.

**ЗАМАСКІРАВА́ЦЬ** *гл.* маскіраваць.

**ЗАМА́СЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* **1.** Запэцкацца маслам, чым-н. тлустым. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Пачаць масліцца, заблішчаць. *Вочы замасліліся.* ‖ *незак.* **зама́слівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАМА́СЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Запэцкаць маслам, чым-н. тлустым. *З. кнігу. З. вопратку.* ‖ *незак.* **зама́сліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАМАСЦІ́ЦЬ** *гл.* масціць.

**ЗАМАТА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Закруціцца, абматацца вакол чаго-н. *Пуга заматалася за аглоблю.* **2.** Стаміцца, знясілець ад клопатаў, работы (разм.). ‖ *незак.* **замóтвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАМАТА́ЦЬ**[1], -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак.* **1.** *што.* Матаючы, закруціць вакол чаго-н. **2.** *каго (што).* Стаміць, знясіліць работай, клопатамі і пад. (разм.).

**ЗАМАТА́ЦЬ**[2], -áю, -аéш, -áе; *зак., чым* (разм.). Пачаць матаць[1]. *З. галавой.*

**ЗАМАТРЫЦАВА́ЦЬ** *гл.* матрыцаваць.

**ЗАМАЎКА́ЦЬ** *гл.* замоўкнуць.

**ЗАМАЎЛЯ́ЦЬ** *гл.* замовіць.

**ЗАМАЎЧА́ЦЬ**[1], -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыцé, -ча́ць; -чы́; *зак.* (разм.). Замоўкнуць, перастаць гаварыць, спяваць, крычаць і пад. *Апавядальнік замаўчаў. Пісаў пісьмы, а цяпер нешта замаўчаў* (перан.: перастаў пісаць).

**ЗАМАЎЧА́ЦЬ**[2], -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыцé, -ча́ць; -чы́; *зак., што* (разм.). Наўмысным маўчаннем скрыць, не даць даведацца пра што-н. *З. непрыемны інцыдэнт. Нельга з. імя вялікага вучонага.* ‖ *незак.* **замóўчваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **замóўчванне**, -я, *н. З. недахопаў.*

**ЗАМАХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** *чым на каго* і *без дап.* Узмахам падняць руку (для нанясення ўдару). *З. палкай.* **2.** *перан., на што.* Намерыцца зрабіць што-н. вялікае, складанае, значнае або атрымаць што-н.; зрабіць спробу незаконна захапіць што-н. *З. на новую тэму. З. на чужое дабро.* ‖ *незак.* **зама́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **зама́хванне**, -я, *н.* і **зама́х**, -у, *м.*

**ЗАМАЦАВА́ЛЬНІК**, -у, *м.* Хімічны састаў для замацавання чаго-н. (напр., фотаздымкаў пасля іх праяўлення, фарбы на тканіне і пад.).

**ЗАМАЦАВА́ЦЦА**, -цу́юся, -цу́ешся, -цу́ецца; -цу́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць замацаваным. **2.** Утрымацца на занятай пазіцыі, арганізаваўшы абарону. *Войскі замацаваліся на новых рубяжах.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Застацца за кім-, чым-н., зрабіцца прыналежнасцю каго-, чаго-н. (пра назву, мянушку і пад.). *Гэта мянушка за ім замацавалася назаўсёды.* ‖ *незак.* **замацóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *наз.* **замацóўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **замацава́нне**, -я, *н.*

**ЗАМАЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць нерухомым, устойлівым (прывязаўшы, прыбіўшы і пад.). *З. канат. З. дэталь на станку.* **2.** *перан., што.* Зрабіць трывалым, устойлівым. *З. веды. З. дасягненні.* **3.** *што.* Апрацаваць замацавальнікам (спец.). *З. фотаздымак.* **4.** *каго-што за кім-чым.* Забяспечыць чые-н. правы, уладу на каго-, што-н., устанавіць якія-н. абавязкі. *З. зямлю за сялянамі. З. за групай кансультанта.* ‖ *незак.* **замацóўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **замацóўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **замацава́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **замацава́льны**, -ая, -ае (да 3 і 4 знач.).

**ЗАМАЧЫ́ЦЬ** *гл.* мачыць.

**ЗАМА́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм., неадабр.). Манера дзейнічаць, звычка, нораў. *Барскія замашкі. Купецкія замашкі.*

**ЗАМГЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Пакрыты імглой, затуманены. *Замглелае неба.*

**ЗАМГЛІ́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -лі́ць; *зак.* Пакрыць імглой, затуманіць. *З. неба.*

**ЗАМГЛІ́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -лі́ць; *зак.* Пачаць імгліць.

**ЗАМЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца за мяжой, іншаземны, зарубежны. *Замежныя дзяржавы.* **2.** Які адносіцца да іншай дзяржавы. *Замежныя тавары. Замежная мова. Замежная камандзіроўка* (за мяжу, за граніцу). **3.** Які мае адносіны да знешняй палітыкі. *Міністэрства замежных спраў.*

**ЗАМЕ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -мéн, *ж.* **1.** *гл.* замяніць. **2.** Той, хто (або тое, што) замяняе каго-, што-н. *Знайсці сабе замену.*

**ЗАМЕ́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Матэрыял, выраб і пад., які па якіх-н. уласцівасцях можа замяніць іншы. *З. каляровых металаў.*

**ЗАМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Такі, які можа быць лёгка заменены другім. *Заменная дэталь. Заменныя страты.*

**ЗАМЕ́НЬВАЦЬ** *гл.* замяніць.

**ЗАМЕ́РАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (спец.). Зрабіць замер. *З. выпрацоўку.* ‖ *незак.* **замéрваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **замяра́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **замéр**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.*

**ЗАМЕ́РЗЛЫ** *гл.* замёрзлы.

**ЗАМЕ́РЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; замéрз, -зла; -ні; *зак.* **1.** Ператварыцца ў лёд або пакрыцца лёдам, ледзяной коркай. *Вада ў вёдрах замерзла. Рэчка замерзла. Вокны замерзлі.* **2.** Загінуць ад холаду або моцна азябнуць. *З. у полі. Пасажыры замерзлі.* ‖ *незак.* **замярза́ць**, -áю, -áеш, -áе; *наз.* **замярза́нне**, -я, *н. Пункт замярзання.*

**ЗАМЕ́РЦІ**, -мру́, -мрэ́ш, -мрэ́; -мрóм, -мрацé, -мру́ць; замёр, -мéрла; -мры́; *зак.* **1.** Стаць нерухомым, перастаць рухацца, дыхаць. *З. ад страху. Ад нечаканасці замерла сэрца. Словы замерлі на губах.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Заціхаючы, спыніцца. *Стук капытоў замёр у далечыні. К ночы рух на вуліцах замёр.* ‖ *незак.* **заміра́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **заміра́нне**, -я, *н. З заміраннем сэрца* (надта хвалюючыся ад чакання чаго-н.).

**ЗАМЕ́С** *гл.* замясіць.

**ЗАМЕ́СТ**, *прыназ. з Р.* Узамен каго-, чаго-н. *Узяць адну кнігу з. другой. Пайду на дзяжурства з. цябе.*

**ЗАМЕ́СЦІ**, -мяту́, -мяцéш, -мяцé; -мяцём, -мецяцé, -мяту́ць; замёў, -мяла́, -лó; -мяці́; -мéцены; *зак.* **1.** *што.* Падмятаючы, сабраць у адно месца ці аддаліць убок. *З. смецце ў куток.* **2.** *каго-што.* Пакрываючы чым-н. сыпкім, закрыць, засыпаць. *Мяцеліца замяла дарогу. З. сляды злачынства* (перан.: утаіць). ‖ *незак.* **замята́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ЗАМЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Знак, зроблены на чым-н., метка. *З. на дрэве.* **2.** Кароткі запіс. *Зрабіць заметку ў блакноце.* **3.** Кароткае паведамленне ў друку. *З. ў газеце.* ◊ **На заметку ўзяць** *каго-што* (разм.) — звярнуўшы на каго-, што-н. увагу, запомніць, запісаць. ‖ *прым.* **замéтачны**, -ая, -ае (да 3 знач.).

**ЗАСЯЧЫ́**[1] *і* **ЗАСЕ́КЧЫ**[1], -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; засе́к, -кла; -сячы́; засе́чаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць сякерай выемку ў чым-н., на чым-н. *З. дрэва.* **2.** Пра каня: на ходу параніць адной нагой другую. *Конь засек нагу.* **3.** Адзначыць момант чаго-н., а таксама вызначыць пункт, месцазнаходжанне чаго-н. *З. час вылету. З. курс карабля.* ‖ *незак.* **засяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗАСЯЧЫ́**[2] *і* **ЗАСЕ́КЧЫ**[2], -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; засе́к, -кла; -сячы́; засе́чаны; *зак., каго.* **1.** Збіць да смерці. **2.** Пазбавіць жыцця вострым прадметам (сякерай, шабляй). ‖ *незак.* **засяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗАСЯЧЫ́СЯ** *і* **ЗАСЕ́КЧЫСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -сячэ́цца; засе́кся, -клася; *зак.* Пра каня: на ходу параніць адной нагой другую. ‖ *незак.* **засяка́цца**, -а́ецца.

**ЗАТАВА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* (спец.). Сабраць многа тавару, не пускаючы ў гандлёвы абарот. *З. муку на складзе.* ‖ *незак.* **затава́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **затава́рванне**, -я, *н.*

**ЗАТАІ́ЦЬ**, -таю́, -то́іш, -то́іць; -то́ены; *зак., што.* Скрыўшы ад іншых (якое-н. пачуццё), захаваць у сабе, у душы. *З. крыўду.* ◊ **Затаіць дыханне** — стрымаць дыханне (напружана ўслухоўваючыся, прытаіўшыся, спалохаўшыся і пад.). ‖ *незак.* **зато́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАТА́ННА**, *прысл.* (разм.). За невысокую цану, нядорага. *Прадаць тавар з.*

**ЗАТАНУ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які затануў. *Затанулая лодка.*

**ЗАТАНУ́ЦЬ**, -тану́, -то́неш, -то́не; -тані́; *зак.* Пайсці на дно вадаёма (аб прадметах). *Карабель затануў.*

**ЗАТАНЦАВА́ЦЦА**, -цу́юся, -цу́ешся, -цу́ецца; -цу́йся; *зак.* (разм.). **1.** Захапіўшыся танцамі, забыць пра час. *З. да ранку.* **2.** Доўга танцуючы, стаміцца. *З. да ўпаду.*

**ЗАТАПІ́ЦЬ**, -таплю́, -то́піш, -то́піць; -то́плены; *зак., што.* **1.** Заліць вадой паверхню чаго-н. *Рака затапіла лугі.* **2.** Апусціць на дно вадаёма (пра вялікія прадметы). *З. судны.* ‖ *незак.* **затапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ЗАТАПТА́ЦЬ**, -тапчу́, -то́пчаш, -то́пча; -тапчы́; -тапта́ны; *зак.* **1.** *што.* Топчучы, зараўняць або ўціснуць што-н., прыціснуць. *З. сляды. З. сціզорык у зямлю. З. каго-н. у гразь* (перан.: зняславіць, ачарніць; разм.). **2.** *каго (што).* Топчучы, задушыць, забіць. *Конь затаптаў шчаня.* **3.** *што.* Забрудзіць слядамі (разм.). *З. падлогу.* ‖ *незак.* **зато́птваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАТАРМАЗІ́ЦЦА** *гл.* тармазіцца.

**ЗАТАРМАЗІ́ЦЬ** *гл.* тармазіць.

**ЗАТАРМАСІ́ЦЬ**, -машу́, -мо́сіш, -мо́сіць; -мо́шаны; *зак., каго (што)* (разм.). Замучыць, стаміць, тармосячы. *Дзеці мяне зусім затармасілі.*

**ЗАТАРЦАВА́ЦЬ** *гл.* тарцаваць.

**ЗА́ТАЎКА**, -і, *ДМ* -таўцы, *ж.* Закраса са свінога сала (звычайна нутранога). *Прынясі крышан здору на затаўку.*

**ЗАТАЎРАВА́ЦЬ** *гл.* таўраваць.

**ЗАТАЎХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго (што)* (разм.). Замучыць, штурхаючы ў натоўпе. *Дзяўчынку затаўхалі ў натоўпе.*

**ЗАТАЎЧЫ́**[1], -таўку́, -таўчэ́ш, -таўчэ́; -таўчо́м, -таўчаце́, -таўку́ць; -то́ўк, -таўкла́, -ло́; -таўчы́; -то́ўчаны; *зак., каго (што)* (разм.). Забіць да паўсмерці, да страты прытомнасці. *Ледзь не затаўклі яго кулакамі.*

**ЗАТАЎЧЫ́**[2], -таўку́, -таўчэ́ш, -таўчэ́; -таўчо́м, -таўчаце́, -таўку́ць; -то́ўк, -таўкла́, -ло́; -таўчы́; -то́ўчаны; *зак., што.* Запраўіць затаўкай. *З. кашу здорам.* ‖ *незак.* **затаўка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗАТАЧЫ́ЦЬ**, -тачу́, -то́чыш, -то́чыць; -то́чаны; *зак., што.* Зрабіць вострым, завастрыць. *З. свярдзёлак.* ‖ *незак.* **зато́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **зато́чванне**, -я, *н. і* **зато́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* (спец.). ‖ *прым.* **зато́чны**, -ая, -ае (спец.). *З. станок.*

**ЗАТВО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Частка агнястрэльнай зброі для закрывання і адкрывання канала ствала. *З. вінтоўкі.* ‖ *прым.* **затво́рны**, -ая, -ае.

**ЗА́ТКАЛА**, -а, *мн.* -ы, -кал, *н.* (разм.). Тое, чым затыкаюць якія-н. адтуліны (скруткі ануч, пакулля і інш.). *Замест шыбы ў акне тарчала з.*

**ЗАТКА́ЦЬ**, -тку́, -тчэ́ш, -тчэ́; -тчо́м, -тчаце́, -тку́ць; -тчы́; -тка́ны; *зак., што.* **1.** Пакрыць тканым узорам. *З. настольнік арнаментам. З. дыван кветкамі.* **2.** Зацягнуць густой сеткай. *Павук заткаў кут павуціннем.*

**ЗАТКНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Закрыцца, закупорыцца. *Бутэлька добра заткнулася.* **2.** Замаўчаць (разм., груб.). *Калі ты ўжо заткнешся?* ‖ *незак.* **затыка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАТКНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -нуты; *зак., што.* **1.** *чым.* Шчыльна закрыць (адтуліну). *З. бутэльку коркам. З. вушы.* **2.** *за што.* Засунуць які-н. прадмет за што-н., куды-н. *З. сякеру за пояс.* ◊ **Заткнуць за пояс** *каго (што)* (разм.) — перасягнуць каго-н. у чым-н. ‖ *незак.* **затыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗАТЛУМІ́ЦЦА**, -умлю́ся, -у́мішся, -у́міцца; *зак.* (разм.). Страціць здольнасць ясна мысліць, разважаць. *Галава затлумілася.* ‖ *незак.* **затлу́мліваацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **затлумле́нне**, -я, *н. і* **затлу́м**, -у, *м. З. галавы.*

**ЗАТЛУМІ́ЦЬ** *гл.* тлуміць.

**ЗАТО́Е**, *злуч. супраціўны.* Але, у той жа час, аднак. *Дамогся справядлівасці, з. нажыў сабе ворагаў.*

**ЗАТО́ЙВАЦЬ** *гл.* затаіць.

**ЗАТО́КА**, -і, *ДМ* -то́цы, *мн.* -і, -то́к, *ж.* **1.** Невялікі рачны заліў. **2.** Месца стаянкі і рамонту рачных суднаў. ‖ *прым.* **зато́кавы**, -ая, -ае.

**ЗАТО́ПТВАЦЬ** *гл.* затаптаць.

**ЗАТО́Р**, -у, *м.* Затрымка ў руху ад скучанасці людзей, транспарту або іншых прадметаў, што перамяшчаюцца ў адным напрамку. *На скрыжаванні дарог утварыўся з. З. лёду на рацэ.* ‖ *прым.* **зато́рны**, -ая, -ае.

**ЗАТО́ЧВАННЕ** *гл.* затачыць.

**ЗАТО́ЧВАЦЬ** *гл.* затачыць.

**ЗАТО́ЧКА** *гл.* затачыць.

**ЗАТО́ЧНЫ** *гл.* затачыць.

**ЗАТРАВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Зарослы травой. *З. грунт.* ‖ *наз.* **затраве́ласць**, -і, *ж.*

**ЗАТРАВЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Зарасці травой. *Двор затравеў.*

**ЗАТРАВЯНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Тое, што і *затравець.*

**ЗАТРАПЯТА́ЦЦА**, -пячу́ся, -пе́чашся, -пе́чацца; -пячы́ся; *зак.* Пачаць трапятацца. *Акуні затрапяталіся ў сетцы.*

**ЗАТРАПЯТА́ЦЬ**, -пячу́, -пе́чаш, -пе́ча; -пячы́; *зак.* Пачаць трапятаць. *Затрапяталі лісты асіны.*

**ЗАТРА́ТА**, -ы, *ДМ* -ра́це, *мн.* -ы, -ра́т, *ж.* **1.** *гл.* затраціць. **2.** звычайна *мн.* Тое, што затрачана, выдаткавана. *Непрадукцыйныя затраты.*

**ЗАТРА́ЦІЦЬ**, -а́чу, -а́ціш, -а́ціць; -а́чаны; *зак., што на каго-што.* Зрасходаваць, патраціць. *З. сродкі на будаўніцтва. З. многа намаганняў на што-н.* ‖ *незак.* **затра́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **затра́чванне**, -я, *н. і* **затра́та**, -ы, *ДМ* -ра́це, *ж.* ‖ *прым.* **затра́тны**, -ая, -ае (спец.).

**ЗАТРАШЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *зак.* Пачаць трашчаць. *Затрашчалі дошкі памоста. Пінжак затрашчаў па швах. Затрашчалі на агні яловыя лапкі. Затрашчалі конікі ў траве. Затрашчалі аўтаматы.*

**ЗАТРЫМА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Спыніцца, запаволіць ці спыніць свой рух. *З. ля ўвахода.* **2.** Застацца дзе-н. на які-н. час, пабыць дзе-н. даўжэй, чым трэба або можна. *Там ён затрымаўся з-за хваробы. З. ў дарозе.* **3.** Запазніцца, не зрабіць чаго-н. у тэрмін. *З. з адказам.* ‖ *незак.* **затры́млівацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **затры́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *ж.*

**ЗАТРЫМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; затры́маны; *зак.* **1.** *каго-што.* Перашкодзіць руху каго-, чаго-н., спыніць. *З. машыну. На дарозе мяне затрымаў таварыш. З. снег на палях.* **2.** *што.* Прыпыніць, адтэрмінаваць што-н. *З. высадку дэсанта. Дажджы затрымалі сяўбу.* **3.** *каго (што).* Вымусіць застацца дзе-н. (на які-н. тэрмін). *Мяне затрымалі неадкладныя справы. З. знаёмага.* **4.** *што.* Не зрабіць, не аддаць у час чаго-н. *З. зарплату.* **5.** *што.* Запаволіць, спыніць на пэўны час дзеянне чаго-н. *З. дыханне. З. крокі.* **6.** *каго (што).* Схапіць, арыштаваць. *З. злачынца.* ‖ *незак.* **затры́мліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **затры́мліванне**, -я, *н.* (да 1—5 знач.), **затрыма́нне**, -я, *н.* (да 1, 2 і 6 знач.) *і* **затры́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *ж.* (да 1, 2, 4 і 5 знач.).

**ЗАТРЫМЦЕ́ЦЬ**, -мчу́, -мці́ш, -мці́ць; -мці́м, -мціце́, -мця́ць; -мці́; *зак.* **1.** Пачаць трымцець. *Затрымцелі лісты.* **2.** Замігаць. *Затрымцелі агеньчыкі.* **3.** Закала-

ціцца, задрыжаць. *Сэрца затрымцела ад радасці.*

**ЗАТРЭ́СЦІСЯ**, -расуся, -расéшся, -расéцца; -расёмся, -расяцéся, -расуцца; -рóсся, -рэ́слася; -рácíся; *зак.* Пачаць трэсціся, дрыжаць. *З. ад страху.*

**ЗАТУ́ЗАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Замучыцца, стаміцца ў якіх-н. клопатах, справах. *Ён зусім затузаўся з маладым канём.*

**ЗАТУ́ЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго.* Тузаючы, замучыць, замарыць. *З. каня. З. хлопца.*

**ЗАТУЛІ́ЦЦА**, -улюся, -у́лішся, -у́ліцца; *зак.* (разм.). Засланіць сябе чым-н. ад чаго-н. або захінуцца ў што-н., схавацца за каго-, што-н., куды-н. *З. ад ветру. З. ў плашч. Хлопчык затуліўся за маці.* ‖ *незак.* **зату́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАТУЛІ́ЦЬ**, -улю́, -у́ліш, -у́ліць; -у́лены; *зак., каго-што.* Закрыць, засланіць чым-н. або схаваць, захінуць у што-н. *З. твар у каўнер.* ‖ *незак.* **зату́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАТУМА́НІЦЦА** *гл.* туманіцца.

**ЗАТУМА́НІЦЬ** *гл.* туманіць.

**ЗАТУ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** Пачаць тупаць. *З. нагамі.* **2.** Захадзіць. *Хутка затупаў па хаце.* **3.** Зайсці, дабрацца куды-н. (разм.). *За дзень не спяшаючыся затупаеш у горад.*

**ЗАТУПІ́ЦЦА** *гл.* тупіцца.

**ЗАТУПІ́ЦЬ** *гл.* тупіць.

**ЗАТУ́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; затух, -хла; *зак.* **1.** Перастаць гарэць, патухнуць. *Агонь затух. Спрэчкі затухлі* (перан.: спыніліся). **2.** Слабеючы, перастаць вагацца, заціхнуць, спыніцца. *Ваганні глебы затухлі.* ‖ *незак.* **затуха́ць**, -áе.

**ЗАТУШАВА́ЦЬ**, -шу́ю, -шу́еш, -шу́е; -шу́й; -шава́ны; *зак., што.* **1.** *гл.* тушаваць. **2.** *перан.* Зрабіць менш выразным, прыметным, згладзіць. *З. супярэчнасці.* ‖ *незак.* **затушо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАТУШЫ́ЦЬ** *гл.* тушыць[1].

**ЗА́ТХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** З пахам сырасці, гнілі, застаялы, заляжалы. *Затхлая вада. Затхлая мука.* **2.** *перан.* Косны, пазбаўлены жывых, жыццёвых інтарэсаў. *Затхлае асяроддзе.* ‖ *наз.* **за́тхласць**, -і, *ж.*

**ЗАТХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -нíся; *зак.* **1.** Задыхнуцца ад недахопу паветра. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сапсавацца, стаць затхлым ад недахопу паветра (разм.). *Мяса затхнулася.* ‖ *незак.* **затыха́цца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ЗАТЫКА́ЦЦА** *гл.* заткнуцца.

**ЗАТЫКА́ЦЬ** *гл.* заткнуць.

**ЗАТЫ́М**, *прысл.* **1.** Пасля гэтага, потым. *Зрабі, а з. хваліся.* **2.** У складзе злучніка мэты «затым каб». *Прыйшоў з., каб пагаварыць.* **3.** У складзе злучніка прычыны «затым што». *Адзінота мяне радавала яшчэ і з., што хацелася спакойна думаць.*

**ЗАТЫНКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; *зак., што.* Пакрыць тынкам. ‖ *незак.* **затынко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗА́ТЫЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Тое, чым затыкаюць што-н. *Драўляная з.* ◊ **Ад усіх дзірак (бочак) затычка** — пра чалавека, якога пастаянна скарыстоўваюць для замены каго-н., выканання розных даручэнняў і пад; які любіць умешвацца не ў свае справы ці прымаць удзел ва ўсім.

**ЗАЎВА́ГА**, -і, *ДМ* -ва́зе, *мн.* -і, -ва́г, *ж.* **1.** Кароткае меркаванне наконт чаго-н. *Трапная з. Заўвагі рэцэнзентаў.* **2.** Вымова, указанне на памылку. *Строгая з.* **3.** Дадатковая заметка, тлумачэнне да тэксту. *Падрадковыя заўвагі.*

**ЗАЎВАЖА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *незак.* Назірацца, выяўляцца. *Пры некаторых хваробах заўважаецца рэзкае павышэнне тэмпературы.*

**ЗАЎВА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак.* **1.** *каго-што* і *са злуч.* «што», «як». Убачыць, падмеціць, выявіць. *З. агеньчык удалечыні. З., што слухачы стаміліся. Не заўважылі, як даехалі да вёскі.* **2.** *каго-што.* Адзначыць, запомніць па якіх-н. прыметах. *З. месца ў кустах, дзе ляжаў ранены.* **3.** Сказаць што-н., уставіць у размову. *«Яно так і ёсць на самай справе», — заўважыў старшыня.* ‖ *незак.* **заўважа́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ЗАЎДАВЕ́ЦЬ**, -éю, -éеш, -éе; *зак.* (разм.). Стаць удавой, удаўцом, аўдавець.

**ЗАЎЖДЫ́**, *прысл.* Тое, што і *заўсёды.*

**ЗАЎЗЯ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з захапленнем займаецца чым-н., аддаецца чаму-н. або напорысты, упарты. *З. паляўнічы. Ён быў чалавек з.: што ні задумае, даб'ецца.* **2.** Які выконваецца з запалам, напружаны. *Заўзятая праца. Заўзятая бойка.* ‖ *наз.* **заўзя́тасць**, -і, *ж.*

**ЗАЎЛАДА́ЦЬ** *гл.* завалодаць.

**ЗАЎСЁДНЫ**, -ая, -ае. Які бывае заўсёды, пастаянны, звычайны. *З. госць. Заўсёдныя клопаты.*

**ЗАЎСЁДЫ**, *прысл.* У любы час, пастаянна. *З. гатоў.*

**ЗА́ЎТРА**, *прысл.* **1.** На наступны дзень пасля сягонняшняга. *Паедзем з.* **2.** *у знач. наз., нескл., н.* Заўтрашні дзень. *Адкласці на з. (да з.). Шчаслівае сёння і светлае з.*

**ЗА́ЎТРАШНІ**, -яя, -яе. Такі, які адбудзецца заўтра. *Заўтрашнія заняткі. Клапаціцца пра з. дзень* (перан.: пра бліжэйшае будучае).

**ЗАЎЧА́СНЫ**, -ая, -ае. Які адбыўся, наступіў раней належнага часу, тэрміну. *Заўчасная смерць. Заўчасныя роды. Хвалявацца яшчэ заўчасна* (прысл.; яшчэ рана хвалявацца). ‖ *наз.* **заўча́снасць**, -і, *ж.*

**ЗАЎЧО́РА**, *прысл.* Два дні таму назад. ‖ *прым.* **заўчара́шні**, -яя, -яе.

**ЗАФАРБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* Пакрыць, замазаць фарбай. *З. пляму.* ‖ *незак.* **зафарбо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **зафарбо́ўванне**, -я, *н.* і **зафарбо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (спец.).

**ЗАФАРШЫРАВА́ЦЬ** *гл.* фаршыраваць.

**ЗАФАСТРЫГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны; *зак.* Зашыць вялікімі шыўкамі. *З. складку на сукенцы.* ‖ *незак.* **зафастрыго́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАФІКСАВА́ЦЬ** *гл.* фіксаваць.

**ЗАФРАХТАВА́ЦЬ** *гл.* фрахтаваць.

**ЗАХАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто захоўвае што-н., прытрымліваецца чаго-н. *З. спадчыны. З. традыцый.* ‖ *ж.* **захава́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЗАХАВА́НАСЦЬ**, -і, *ж.* Захаванне ў поўнай цэласці, адсутнасць пашкоджанняў. *Адказваць за з. рэчаў.*

**ЗАХАВА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Зберагчыся, уцалець, застацца непашкоджаным, непатрачаным. *Дом добра захаваўся. Здароўе захавалася. Запасы захаваліся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Застацца ў сіле, не знікнуць. *Старыя звычкі захаваліся.* **3.** Захаваць свае сілы, маладжавы выгляд (разм.). *Гэты чалавек добра захаваўся.* **4.** Застацца непашкоджаным, уцалець. *З. ад пажару.* ‖ *незак.* **захо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАХАВА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак.* **1.** Аберагаючы, не даць каму-, чаму-н. прапасці, загінуць, зберагчы цэлым. *З. дзяржаўную маёмасць. З. здароўе. З. прадукты ад цвілі. З. успаміны* (перан.: не забыць). **2.** *што.* Пакінуць у сіле, у дзеянні. *З. за сабой права. З. добрыя звычкі.* **3.** *што.* Не парушыць чаго-н. *З. умовы дагавору. З. знешні спакой.* **4.** *каго-што.* Пакласці, размясціць так, каб не маглі знайсці (разм.). *Кнігу так захаваў, што я не знайшоў.* ‖ *незак.* **захо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **захава́нне**, -я, *ж.*

**ЗА́ХАД**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** Адзін з чатырох бакоў свету і напрамак, процілеглы ўсходу; частка гарызонту, дзе заходзіць сонца. **2.** Мясцовасць, размешчаная ў гэтым напрамку, а таксама («З» вялікае) краіны Заходняй Еўропы і Амерыкі. *Мастацтва Захаду.* ‖ *прым.* **захо́дні**, -яя, -яе.

**ЗАХАДЖА́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Прышлы з чужых мясцін, які зайшоў мімаходам. *Захаджалыя людзі.*

**ЗАХАДЗІ́ЦЬ**, -хаджу́, -хо́дзіш, -хо́дзіць; *зак.* Пачаць хадзіць. *Нервова захадзіў па пакоі.*

**ЗА́ХАДЫ**, -аў. Меры, дзеянні, накіраваныя на дасягненне пэўнай мэты. *Рабіць* або *прымаць з.*

**ЗАХАЛУ́СЦЕ**, -я, *н.* (разм.). Глухое, аддаленае ад цэнтра месца. *Жыць у захалусці.* ‖ *прым.* **захалу́сны**, -ая, -ае.

**ЗАХАПІ́ЦЦА**, -хаплюся, -хо́пішся, -хо́піцца; *зак.* **1.** *кім-чым.* Цалкам аддацца якой-н. справе, занятку. *З. зборам значкоў. З. любімай работай.* **2.** *кім.* Закахацца ў каго-н. *З. дзяўчынай.* ‖ *незак.* **захапля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ЗАХАПІ́ЦЬ**, -хаплю́, -хо́піш, -хо́піць; -хо́плены; *зак.* **1.** *каго-што.* Хапаючы,

узяць, забраць, схапіць. *З. жменю зерня.* **2.** *каго-што.* Сілай авалодаць кім-, чым-н. *З. чужую тэрыторыю. З. у палон. З. ініцыятыву* (перан.). **3.** *каго-што* і *чаго.* Узяць з сабой. *З. плашч. З. з сабой яды.* **4.** *перан., каго (што).* Вельмі зацікавіць, прымусіць поўнасцю аддацца якой-н. справе. *Новая ідэя захапіла яго.* **5.** *перан., каго (што).* Завалодаць увагай, зачараваць. *З. гледачоў ігрой.* **6.** *каго (што).* Раптоўна застаць. *З. каго-н. дома. Навальніца захапіла нас у полі.* **7.** *каго-што.* Панесці з сабой, захапіўшы, падхапіўшы. *Цячэнне захапіла лодку.* ‖ *незак.* **захо́пліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **захапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 4 і 5 знач.). ‖ *наз.* **захо́п**, -у, *м.* (да 2 знач.).

**ЗАХАПЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Незвычайны ўздым пачуццяў, найвышэйшае задавальненне. *Быць у захапленнні ад канцэрта. Прыйсці ў з. ад чаго-н.* **2.** Усхваляванасць, запал, натхненне. *Гаварыць з захапленнем.* **3.** *кім-чым.* Павышаны інтарэс да чаго-н. *З. тэатрам. З. футболам.* **4.** *кім.* Улюбёнасць у каго-н. *Гэта было з., а не каханне.*

**ЗАХАПЛЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які выклікае захапленне, цікавасць. *З. раман.*

**ЗАХАПЛЯ́ЮЧЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *захапляльны.*

**ЗАХА́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* (разм.). **1.** Пачаць харкаць. *Захаркаў кроўю.* **2.** *што.* Харкаючы, забрудзіць. *З. падлогу.* ‖ *незак.* **заха́ркваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.).

**ЗАХАЦЕ́ЦЦА**, -хо́чацца; *безас.; зак.* Пачаць хацецца. *Захацелася спаць.*

**ЗАХАЦЕ́ЦЬ**, -хачу́, -хо́чаш, -хо́ча; -хаці́; *зак., чаго, з інф.* і *са злуч.* «каб». Пачаць хацець. *З. малака. З. есці. Захацела, каб дачка прыехала.*

**ЗАХВАЛІ́ЦЬ**, -алю́, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены; *зак., каго (што)* (разм.). Збалаваць, сапсаваць празмернымі пахваламі. *З. вучня.* ‖ *незак.* **захва́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **захва́льванне**, -я, *н.*

**ЗАХВАЛЯВА́ЦЦА**, -лю́юся, -лю́ешся, -лю́ецца; -лю́йся; *зак.* **1.** Пачаць хвалявацца. *Мора захвалявалася. Натоўп захваляваўся.* **2.** Адчуць унутраны неспакой (перан.). *Дзяўчынка захвалявалася.*

**ЗАХВАРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак., на што* і *без дап.* Стаць хворым. *З. на шкарлятыну.* ‖ *незак.* **захво́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАХВАСТА́ЦЬ**, -вашчу́, -во́шчаш, -во́шча; -вашчы́; -вастаны; *зак.* (разм.). **1.** Пачаць хвастаць. **2.** *каго-што.* Забіць, засячы хлыстом, пугай. *Захвастаў да паўсмерці хлопца.*

**ЗАХВО́РВАННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Тое, што і *хвароба. Інфекцыйныя захворванні.* **2.** Узнікненне хваробы. *Момант захворвання.*

**ЗАХІЛІ́ЦЬ**, -ілю́, -і́ліш, -і́ліць; -і́лены; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Засланіць, загарадзіць чым-н. *З. твар рукамі.* **2.** Загнуць што-н. тканае. *З. край сурвэткі.* ‖ *незак.* **захіля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *звар.* **захілі́цца**, -ілю́ся, -і́лішся, -і́ліцца; *незак.* **захіля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ЗАХІНУ́ЦЬ**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Засланіць, прыкрыць чым-н. *З. рукамі галаву.* **2.** *што.* Пасунуўшы, закрыць, завесіць. *З. фіранку.* **3.** *каго-што.* Ахінуць чым-н., закруціць у што-н. або схаваць куды-н., за што-н. *З. дзіця ў кажух. З. сумку за сябе.* **4.** *што.* Закінуць адзін край адзежыны за другі. *З. полы кажуха.* **5.** *перан., што.* Зацягнуць тонкім слоем. *Туман захінуў берагі ракі.* ‖ *незак.* **захіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **захіну́цца**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -ні́ся; *незак.* **захіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАХЛА́МІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак., што.* Зрабіць захламленым. *Увесь пакой захламіў.* ‖ *незак.* **захламля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **захла́мліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАХЛА́МЛЕНЫ**, -ая, -ае. Застаўлены, завалены хламам, непатрэбнымі рэчамі і пад. *З. калідор.* ‖ *наз.* **захла́мленасць**, -і, *ж.*

**ЗАХЛІПНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Міжвольна спыніць, затрымаць дыханне, папярхнуцца або памерці ад папаўшага ў рот імклівага струменю паветра, дыму і пад. *З. паветрам. Атака ворага захліпнулася* (перан.: пацярпела няўдачу). **2.** Адчуць цяжкасць, перабоі ў дыханні (ад якога-н. моцнага пачуцця, смеху, плачу і пад.). *З. ад радасці. З. ад смеху.* ‖ *незак.* **захліпа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАХЛОРАФАРМАВА́ЦЬ** *гл.* хлорафармаваць.

**ЗАХЛЫНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Задыхнуцца ад вады. *З. ў час купання.* **2.** *перан.* Перастаць дзейнічаць. *Кулямёт захлынуўся. Атака праціўніка захлынулася.*

**ЗАХЛЮ́ПАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пакрыцца пырскамі чаго-н. *З. граззю.*

**ЗАХМА́РЫЦЦА**, -ыцца; *асаб.* і *безас.; зак.* Зрабіцца хмарным. *Неба захмарылася. К вечару захмарылася.* ‖ *незак.* **захма́рвацца**, -аецца.

**ЗАХМЯЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які захмялеў, ап'янелы. *Захмялелая кампанія.*

**ЗАХМЯЛЕ́ЦЬ** *гл.* хмялець.

**ЗАХО́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* зайсці. **2.** Прыём. *З другога заходу. Перанесці цыбулю за тры заходы.*

**ЗАХО́ДЗІЦЦА**[1] *гл.* зайсціся[1].

**ЗАХО́ДЗІЦЦА**[2] *гл.* зайсціся[2].

**ЗАХО́ДЗІЦЬ** *гл.* зайсці.

**ЗАХО́ДНІ** *гл.* захад.

**ЗАХО́П** *гл.* захапіць.

**ЗАХО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* захапіць.

**ЗАХО́ПНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто захапіў чужую тэрыторыю, вядзе захопніцкую палітыку, заваёўнік. *Чужаземныя захопнікі.*

**ЗАХО́ПНІЦКІ**, -ая, -ае. Які імкнецца гвалтоўна авалодаць чым-н., заваёўніцкі. *Захопніцкія войны.*

**ЗАХО́ЎВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** *гл.* захавацца. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Знаходзіцца дзе-н. на захаванні. *Грошы захоўваюцца ў ашчадным банку.*

**ЗАХО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* захаваць. **2.** Трымаць дзе-н., каб зберагчы ад пашкоджання, псавання. *З. бульбу ў склепе.*

**ЗАХО́ЎНЫ**, -ая, -ае (афіц.). Які гарантуе цэласнасць, захаванасць чаго-н. *Захоўная распіска.* ‖ *наз.* **захо́ўнасць**, -і, *ж.*

**ЗАХРА́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; захра́с, -сла; -ні; *зак.* (разм.). **1.** Забіцца, закупорыцца чым-н. *Ракавіна захрасла.* **2.** Засесці дзе-н., у чым-н. *Костка захрасла ў горле.*

**ЗАХРЫБЕ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Дармаед, чалавек, які жыве чужой працай. ‖ *ж.* **захрыбе́тніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **захрыбе́тніцкі**, -ая, -ае.

**ЗАХУ́ТАЦЦА** *гл.* хутаць.

**ЗАХУ́ТАЦЬ** *гл.* хутаць.

**ЗАЦАЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак., каго (што)* (разм.). Пакрыць мноствам пацалункаў. *З. дзіця.* ‖ *незак.* **зацало́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЦВЕ́РДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што.* Канчаткова ўстанавіць, прыняць, афіцыйна аформіць. *З. праект. З. на пасаду дырэктара.* ‖ *незак.* **зацвярджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **зацвярджэ́нне**, -я, *н.*

**ЗАЦВІ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які пакрыўся цвіллю, заплеснелы. *З. хлеб.* ‖ *наз.* **зацві́ласць**, -і, *ж.*

**ЗАЦВІСЦІ́**, -віту́, -віцéш, -віцé; -віцём, -віцяцé, -віту́ць; -віў́, -віла́, -ло́; *зак.* Пачаць цвісці. *Зацвілі ружы.* ‖ *незак.* **зацвіта́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗАЦВЯРДЗЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаў цвёрдым. *Зацвярдзелая зямля.* **2.** Пра зычныя гукі: якія вымаўляецца заўсёды цвёрда (беларускія гукі «дж», «ж», «р», «ц», «ч», «ш»). *Зацвярдзелыя зычныя.*

**ЗАЦВЯРДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* цвярдзець. **2.** Хваравітае ўшчыльненне мышачнай тканкі.

**ЗАЦВЯРДЗЕ́ЦЬ** *гл.* цвярдзець.

**ЗА́ЦЕМНА**, *прысл.* (разм.). Калі цёмна (пакуль яшчэ не развіднела або калі ўжо сцямнела). *Выехаць яшчэ з. Завяршыць працу ўжо з.*

**ЗА́ЦЕНЬ** *гл.* засень.

**ЗАЦЕРУШЫ́ЦЬ**, -церушу́, -цяру́шыш, -цяру́шыць; -цяру́шаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Пакрыць тонкім слоем чаго-н. сыпкага. *Першы снег зацерушыў зямлю.* **2.** Пачаць церушыць (пра снег і інш.). *Зацерушыў сняжок.* ‖ *незак.* **зацяру́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЦЕ́РЦІ**, затру́, затрэ́ш, затрэ́; затро́м, затрацé, затру́ць; зацёр, -цёрла; затры́; -цёрты; *зак.* **1.** *што.* Тручы, зрабіць нябачным, знішчыць. *З. надпіс. З. мокрыя сляды на падлозе.* **2.** *каго-што.* Сціснуць, пазбавіць магчымасці свабодна рухацца. *Ільды зацёрлі карабель. З. ў натоўпе.* **3.** *перан., каго (што).* Наўмысна перашкодзіць ка-

му-н. праявіць сябе, прасунуцца па службе (разм.). *З. маладога спецыяліста.* **4.** *што.* Прыгатаваць расціраннем, замешваннем. *З. муку.* ‖ *незак.* **заціраць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЦЕРЦІСЯ**, затруся, затрэшся, затрэцца; затромся, затрацеся, затруцца; зацёрся, -церлася; затрыся; *зак.* (разм.). Забрацца (у натоўп, у групу людзей); пранікнуць. *З. ў натоўп.* ‖ *незак.* **заціраіцца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАЦЕСНЫ**, -ая, -ае (разм.). Цеснаваты, крыху цесны. *Зацеснае паліто.*

**ЗАЦЁК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* След ад водкасці, фарбы. *Уся сцяна ў зацёках.*

**ЗАЦЁКЛЫ**, -ая, -ае. Які зацёк. *Зацёклая сцяна. Зацёклыя ногі.*

**ЗАЦІКАВІЦЦА**, -каўлюся, -кавішся, -кавіцца; *зак., кім-чым.* Праявіць, адчуць цікавасць да каго-, чаго-н. *З. музыкай.* ‖ *незак.* **зацікаўлівацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **зацікаўленасць**, -і, *ж.*

**ЗАЦІКАВІЦЬ**, -каўлю, -кавіш, -кавіць; -каўлены; *зак., каго (што) чым.* **1.** Абудзіць у кім-н. цікавасць да чаго-н. *З. слухачоў лекцыяй. Што вас тут зацікавіла?* **2.** Заахвоціць матэрыяльна, практычнымі выгодамі. *Зацікаўленыя бакі.* ‖ *незак.* **зацікаўліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **зацікаўленасць**, -і, *ж.*

**ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* зацікавіцца, зацікавіць. **2.** Матэрыяльны, практычны інтарэс да чаго-н. *Матэрыяльная з. З. у справе.*

**ЗАЦІНАЦЦА** *гл.* заняцца.

**ЗАЦІНАЦЬ** *гл.* заняць.

**ЗАЦІРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* Рэдкая страва з дробных мучных камячкоў, згатаваных на вадзе ці малацэ. *Забяліць зацірку.* ‖ *прым.* **заціравачны**, -ае, -ае.

**ЗАЦІСКАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Прыстасаванне для заціскання чаго-н.

**ЗАЦІСКНЫ**, -ая, -ое. Які прызначаецца, служыць для заціскання. *З. механізм.*

**ЗАЦІСНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* (разм.). З цяжкасцю прабрацца, залезці куды-н. *З. ў кут.* ‖ *незак.* **заціскацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАЦІСНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Затрымаць, зашчаміць, абхапіўшы з усіх бакоў. *З. манету ў кулаку. З. болт у ціскі.* **2.** *што.* Шчыльна заткнуць, сціснуўшы. *З. вушы далонямі. З. рот* (таксама перан.: не даць свабодна выказацца). **3.** *што.* Паменшыць у аб'ёме або зрабіць больш тугім, сціснуўшы. *З. вузел.* **4.** *перан., каго-што.* Абмежаваць свабоду ў чым-н., перашкодзіць развіццю, праяўленню чаго-н. *З. крытыку. З. ініцыятыву.* **5.** *каго.* Ціскаючы, замучыць, задушыць (разм.). *З. у натоўпе.* ‖ *незак.* **заціскаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЦІХЛЫ**, -ая, -ае. Які заціх, перастаў гучаць або чуцца. *Заціхлая зала. Заціхлая песня.*

**ЗАЦІХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; заціх, -хла; -ні; *зак.* **1.** Перастаць утвараць якія-н. гукі; перастаць шумець. *Зала заціхла. Дзеці заціхлі.* **2.** *перан.* Аслабіць або спыніць сваю дзейнасць. *Вецер заціх.* ‖ *незак.* **заціхаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЦІШАК**, -шку, *м.* **1.** Ціхае, затуленае ад ветру месца. *Схавацца ў з.* **2.** *перан.* Утульнае, адасобленае ад шуму месца. *Не мог сядзець у зацішку, калі таварышы ваююць.*

**ЗАЦІШНЫ**, -ая, -ае. **1.** Бязветраны, ціхі. *З. бок.* **2.** *перан.* Без значных падзей, ажыўленай дзейнасці. *Зацішныя дні.*

**ЗАЦІШША**, -а, *н.* Спыненне шуму, ветру, руху, дзейнасці. *Наступіла з. пасля бою. З. перад навальніцай.*

**ЗАЦКАВАЦЬ** *гл.* цкаваць.

**ЗАЦУГЛЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яны; *зак., каго (што).* Укласці ў рот каню цуглі, закілзаць. *З. каня.* ‖ *незак.* **зацугліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЦУКРАВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -руецца; *зак.* Гусцеючы, ператварыцца ў цукрыстыя камячкі. *Варэнне зацукравалася.* ‖ *незак.* **зацукроўвацца**, -аецца.

**ЗАЦУКРАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак., што.* Пакрыць цвёрдым слоем цукровага сіропу. *З. ягады.* ‖ *незак.* **зацукроўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЦЫРАВАЦЬ** *гл.* цыраваць.

**ЗАЦЬМЕННЕ**, -я, *н.* **1.** Астранамічная з'ява, калі адно нябеснае цела або яго цень закрывае другое нябеснае цела. *З. Месяца. Сонечнае з.* **2.** *перан.* Часовае замрачэнне галавы. *На яго найшло нейкае з.*

**ЗАЦЬМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; *зак., каго-што.* **1.** Засланіўшы сабой, зрабіць нябачным. *Хмары зацьмілі сонца.* **2.** *перан.* Перавысіць у якіх-н. адносінах. *З. усіх непараўнанай прыгажосцю.* ‖ *незак.* **зацьмяваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЦЭМЕНТАВАЦЬ** *гл.* цэментаваць.

**ЗАЦЭНТРАВАЦЬ** *гл.* цэнтраваць.

**ЗАЦЮКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго (што)* (разм.). Пастаяннымі прычэпкамі, нападкамі зрабіць запужаным, забітым. *Зусім зацюкалі хлопца.*

**ЗАЦЯГАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). **1.** Замарыцца ад доўгай хады. *З. за дзень.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Забрудзіцца ад працяглага нашэння. *Вопратка зацягалася.*

**ЗАЦЯГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* (разм.). **1.** *каго (што).* Замучыць, цягаючы з аднаго месца ў другое. *З. па судах.* **2.** *што.* Занасіць пры працяглым выкарыстанні. *З. адзежу. З. плашч.* **3.** *перан., што.* Часта карыстаючыся, зрабіць трывіяльным, збітым. *Зацяганы выраз.*

**ЗАЦЯГНУЦЦА**, -ягнуся, -ягнешся, -ягнецца; -ягніся; *зак.* **1.** Зацягнуць на сабе што-н.; туга завязацца. *З. рэменем. Пятля зацягнулася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Абвалакаючыся чым-н., пакрыцца цалкам. *Рака зацягнулася тонкім лёдам. Рана зацягнулася* (зажыла, пакрыўшыся скуркай). **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Запаволіцца ў развіцці, працягнуцца да пэўнага часу. *Сход зацягнуўся.* **4.** Глыбока ўдыхнуць у сябе дым пры курэнні. **5.** З цяжкасцю зайсці, дабрацца куды-н. (разм.). *З. дадому.* ‖ *незак.* **зацягвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **зацягванне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.) *і* **зацяжка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* (да 3 і 4 знач.).

**ЗАЦЯГНУЦЬ**, -ягну, -ягнеш, -ягне; -ягні; -ягнуты; *зак.* **1.** *што.* Сілай, угаворамі прывесці, прымусіць зайсці куды-н. (разм.). *З. у госці. З. у клуб.* **2.** *што.* Уцягнуць у сярэдзіну, у вузкую адтуліну або засмактаць[1]. *З. нітку ў іголку. З. у дрыгву.* **3.** *што.* Удыхнуць у сябе (дым, паветра і пад.), закурыць (разм.). *З. носам паветра. З. люльку.* **4.** *што чым.* Абвалакаючы, пакрыць поўнасцю. *Хмары зацягнулі неба. Рану зацягнула* (безас.; пра тонкую плёнку пры загойванні). **5.** *што.* Завесіць. *З. фіранку.* **6.** *што.* Туга завязаць, сцягнуць. *З. гарсэт.* **7.** *што і з чым.* Затрымаць, замарудзіць заканчэнне чаго-н. *З. сяўбу. З. з водзывам на кнігу.* **8.** *што.* Заспяваць (разм.). *З. песню.* ‖ *незак.* **зацягваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **зацягванне**, -я, *н.* (да 2, 3, 5—8 знач.) *і* **зацяжка**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* (да 4, 7 і 8 знач.).

**ЗАЦЯЖАРАЦЬ** *гл.* цяжараць.

**ЗАЦЯЖКІ**, -ая, -ае (разм.). Залішне цяжкі.

**ЗАЦЯЖНЫ**, -ая, -ое. Залішне працяглы, які зацягнуўся. *З. дождж. З. крызіс. З. скачок* (скачок з парашутам, які доўга не раскрываецца).

**ЗАЦЯМНІЦЬ**, -цямню, -цёмніш, -цёмніць; -цямнёны; *зак., што.* **1.** Зрабіць цёмным або закрыць чым-н. цёмным, не прапускаючым святло. *Хмары зацямнілі сонца. З. фон карціны.* **2.** Замаскіраваць. *З. горад.* **3.** *перан.* Зрабіць менш ясным. *З. свядомасць.* ‖ *незак.* **зацямняць**, -яю, -яеш, -яе. *З. сутнасць справы* (перан.). ‖ *наз.* **зацямненне**, -я, *н.*

**ЗАЦЯНІЦЬ**, -цяню, -ценіш, -ценіць; -ценены; *зак., што.* Пакрыць ценем, схаваць у цяні; засланіць (крыніцу святла). ‖ *незак.* **зацяняць**, -яю, -яеш, -яе.

**ЗАЦЯРУШВАЦЬ** *гл.* зацерушыць.

**ЗАЦЯТЫ**, -ая, -ае. **1.** Упарты, настойлівы ў ажыццяўленні чаго-н. *З. чалавек. Зацятая барацьба. Зацятая спрэчка.* **2.** *перан.* Працяглы, пастаянны, нязменны. *Зацятая варожасць. З. боль.* **3.** Скрытны; затоены, насцярожаны. *Ён чалавек горды і з. Зацятая маўклівасць.* **4.** Вельмі аддзаны чаму-н., заўзяты. *З. балельшчык.* ‖ *наз.* **зацятасць**, -і, *ж.*

**ЗАЦЯЦЦА**, затнуся, затнешся, затнецца; затнёмся, затняцеся, затнуцца; зацяўся, -цялася, -лося; затніся; *зак.* **1.** Заўпарціцца, уперціся. **2.** Затаіць у сабе свае думкі, пачуцці або злосць на каго-н. *Зацялася і ні з кім не размаўляе.* ‖ *незак.* **зацінацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАЦЯЦЬ**, затну, затнеш, затне; затнём, затняце, затнуць; зацяў, -цяла, -ло; затні; зацяты; *зак., што.* **1.** Заціснуць, сцяць. *З. зубы. З. дыханне* (перан.: прыпыніць, зрабіць нячутным). **2.** *безас.* Пазбавіць маг-

чымасці дыхаць, гаварыць. *Замаўчаў, быццам зацяло яму мову. Усе замоўклі надоўга, як зацяло* (безас.) *ім* (адняло мову, голас; разм.). ◊ **Няма за што рук зацяць** (разм.) — нічога няма, няма чым заняцца. ‖ *незак.* **зацінáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ЗАЦЯЧЫ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цячэ́; зацёк, -цяклá, -лó; *зак.* **1.** Пра што-н. вадкае, цякучае: трапіць, заліцца куды-н. *Вада зацякла за каўнер.* **2.** Намокнуць, праняцца чым-н. вадкім. *Столь зацякла.* **3.** Апухнуць, ацячы. *Вока зацякло.* **4.** Пра часткі цела: анямець. *Ногі зацяклі.* ‖ *незак.* **зацякáць**, -áе.

**ЗАЧАПІ́ЦЦА**, -чаплю́ся, -чэ́пішся, -чэ́піцца; *зак.* **1.** *чым, за што.* Закрануўшы што-н., страціць магчымасць рухацца; закрануць сабой, якой-н. часткай цела ці адзення за што-н. *Воз зачапіўся за пень. З. рукавом за дрот.* **2.** Ухапіцца, учапіцца (разм.). *З. рукамі за сук.* ‖ *незак.* **зачапляцца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца *і* **зачэ́плівацьца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю́, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак., каго-што.* **1.** Захапіць, паддзець, каб прыцягнуць да сябе або злучыць з чым-н. *З. вядро на крук. З. бервяно бусаком.* **2.** Выпадкова закрануць пры руху. *З. воссю за вугал.* **3.** *перан.* Усхваляваць, абудзіць якое-н. пачуццё; зняважыць чые-н. пачуцці. *З. за жывое. З. самалюбства.* **4.** Пачаць гаворку з кім-н., сказаць каму-н. што-н.; закрануць у размове што-н. *Я не рада, што яе зачапіла. З. дзяўчыну ў гаворцы.* ‖ *незак.* **зачэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЧАРАВА́ННЕ**, -я, *н.* Чароўная сіла каго-, чаго-н., а таксама стан таго, хто адчувае на сабе такую сілу. *Навакольная прыгажосць выклікае з.*

**ЗАЧАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Паводле забабонных уяўленняў: чарамі, магічнымі словамі падпарадкаваць сабе, заваражыць. **2.** *перан.* Зрабіць захапляючае ўражанне. *Артыстка зачаравала сваім голасам.* ‖ *незак.* **зачаро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЧАРВІ́ВЕЦЬ** *гл.* чарвівець.

**ЗАЧАРНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ée; *зак.* Пачаць чарнець (у 2 знач.). *На полі зачарнела ралля.*

**ЗАЧАРНІ́ЦЬ** *гл.* чарніць.

**ЗАЧАРСЦВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаў чэрствым, зацвярдзеў. *З. кавалак хлеба.* **2.** *перан.* Бяздушны, нячулы. *Зачарсцвелая натура.* ‖ *наз.* **зачарсцвéласць**, -і, *ж.*

**ЗАЧАРСЦВЕ́ЦЬ** *гл.* чарсцвець.

**ЗАЧАРЦІ́ЦЬ**, -чарчу́, -чэ́рціш, -чэ́рціць; -чэ́рцім, -чэ́рціце, -чэ́рцяць; -чэ́рчаны; *зак., што.* Пакрыць рысамі, чарцяжом. *З. ліст паперы.* ‖ *незак.* **зачэ́рчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЧАСА́ЦЬ**[1], -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чэ́шам, -чэ́шаце, -чэ́шуць; -чашы́; -часáны; *зак., што.* Прычэсваючы, прыгладзіць (валасы) у адным напрамку. *З валасы на правы бок.* ‖ *незак.* **зачэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЧАСА́ЦЬ**[2], -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чэ́шам, -чэ́шаце, -чэ́шуць; -чашы́; -часáны *і* -чэ́саны; *зак., што.* Чэшучы тапаром, рабіць вузейшым, вастрэйшым з аднаго боку. *З. кол.* ‖ *незак.* **зачэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЧАСЦІ́ЦЬ**, -чашчу́, -часці́ш, -часці́ць; -часці́м, -часціце́, -часця́ць; *зак.* (разм.). **1.** Пачаць рабіць што-н. часта. *З. у госці. Дзе не любяць — не гасці, а дзе любяць — не часці* (прыказка). **2.** Паліцца частымі кроплямі. *Дождж зачасціў.*

**ЗАЧА́ТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Тое, што і *зародак.* **2.** Адміраючы астатак недаразвітага органа ў арганізме, рудымент (спец.). **3.** звычайна *мн., перан.* Пачатак, першае праяўленне чаго-н. *Зачаткі новых адносін.* ‖ *прым.* **зачáткавы**, -ая, -ае. *З. стан.*

**ЗАЧАХЛІ́ЦЬ** *гл.* чахліць.

**ЗАЧА́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Змарнелы, хваравіты. *З. чалавек.* **2.** Які зачах, слаба расце, завялы. *Зачахлае дрэва.* ‖ *наз.* **зачáхласць**, -і, *ж.*

**ЗАЧА́ХНУЦЬ** *гл.* чахнуць[1].

**ЗАЧА́ЦЦЕ**, -я, *н.* Зараджэнне плода, пачатак цяжарнасці.

**ЗАЧА́ЦЬ**, -чну́, -чнéш, -чнé; -чнём, -чняцé, -чну́ць; -ча́ў, -чалá, -лó; -чні́; -ча́ты; *зак., каго (што).* **1.** Распачаць (разм.). *З. будаўніцтва.* **2.** Даць пачатак жыцця каму-н. (уст.). *З. дзіця.* ‖ *незак.* **зачынáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ЗАЧО́С**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Зачасаная звычайна назад пасма валасоў. *Валасы з прыгожым зачосам.*

**ЗАЧУ́МЛЕНЫ**, -ая, -ае. Заражаны чумой. *Уцякаць, як ад зачумленага* (наз.).

**ЗАЧЫ́Н**, -у, *м.* **1.** Пачатак чаго-н., пачын (разм.). *Зрабіць з. у якой-н. справе.* **2.** Традыцыйны пачатак (у творах народнай паэзіі). *З. быліны.* ‖ *прым.* **зачы́нны**, -ая, -ае.

**ЗАЧЫНА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто пачынае якую-н. справу, пачынальнік. *Скарына — з. усходнеславянскага кнігадрукавання.* ‖ *ж.* **зачынáльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **зачынáльніцкі**, -ая, -ае.

**ЗАЧЫНІ́ЦЬ**, -ыню́, -ы́ніш, -ы́ніць; -ы́нены; *зак.* **1.** *што.* Пакрыць векам. *З. скрыню.* **2.** *што.* Злучыць створкі для спынення доступу, пранікнення ў сярэдзіну каго-, чаго-н. *З. дзверы. З. хату.* **3.** *каго-што.* Змясціўшы куды-н., заперці на замок. *З. дзяцей у хаце.* ◊ **Свет зачыніць** *каму* (разм.) — перашкодзіць нармальнаму, спакойнаму жыццю. **Як зачыніць** — поўна. ‖ *незак.* **зачыня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *звар.* **зачыні́цца**, -ынюся, -ы́нішся, -ы́ніцца (да 2 і 3 знач.); *незак.* **зачыня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ЗАЧЫ́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто пачынае што-н. (звычайна непрыстойнае). *З. бойкі.* ‖ *ж.* **зачы́ншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **зачы́ншчыцкі**, -ая, -ае.

**ЗАЧЫРВАНЕ́ЦЦА**, -е́юся, -е́ешся, -е́ецца; *зак.* **1.** Тое, што і *зачырванець.* **2.** Пачырванець ад сораму, збянтэжанасці. *Дзяўчына зачырванелася.*

**ЗАЧЫРВАНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Пачаць чырванець (у 1 і 3 знач.). *На ўсходзе зачырванела неба.*

**ЗАЧЫСЦІ́ЦЬ**, -ы́шчу, -ы́сціш, -ы́сціць; -ы́шчаны; *зак., што* (спец.). Чысцячы, загладзіць, зняць ізаляцыю. *З. канцы правадоў. З. месца для латкі на веласіпеднай камеры.* ‖ *незак.* **зачышчáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ЗАЧЫТА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* Захапіўшыся чытаннем, забыцца на час. *З. цікавай кнігай. З. да раніцы.* ‖ *незак.* **зачы́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАЧЫТА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* **1.** Прачытаць уголас для ўсеагульнага апавяшчэння. *З. пастанову.* **2.** Прывесці ў неахайны выгляд працяглым або нядбайным карыстаннем (пра кнігу, газету і пад.; разм.). **3.** Узяўшы для чытання, не вярнуць (разм.). *З. кнігу.* ‖ *незак.* **зачы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЧЭ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* (разм.). **1.** Прыстасаванне, якім што-н. зачэпліваюць або якое што-н. трымае. **2.** *перан.* Прычына, падстава. *З. для сваркі.*

**ЗАЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *гл.* зачапіцца.

**ЗАЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *гл.* зачапіць.

**ЗАЧЭ́РПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* і *чаго.* Чэрпаючы, набраць якую-н. колькасць вадкасці. *З. вады.* ‖ *незак.* **зачэ́рпваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАЧЭ́РПНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што* і *чаго.* Тое, што і *зачэрпаць.*

**ЗАЧЭ́РЧВАЦЬ** *гл.* зачарціць.

**ЗАЧЭ́СВАЦЬ**[1] *гл.* зачасаць[1].

**ЗАЧЭ́СВАЦЬ**[2] *гл.* зачасаць[2].

**ЗАШАВЯЛІ́ЦЦА**, -вялю́ся, -вéлішся, -вéліцца; *зак.* **1.** Пачаць шавяліцца, прыйсці ў рух. *Лісце на дрэвах зашавялілася.* **2.** Пачаць мітусліва рухацца. *У кучы гною зашавяліліся жукі.* **3.** Праявіць актыўнасць. *Народ зашавяліўся.*

**ЗАШАВЯЛІ́ЦЬ**, -вялю́, -вéліш, -вéліць; *зак., чым.* Пачаць шавяліць. *З. пальцамі.*

**ЗАШАЛУДЗІ́ВЕЦЬ** *гл.* шалудзівець.

**ЗАША́СТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Пачаць шастаць. *Нехта ў кустах зашастаў.*

**ЗАШКЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліцé, -ля́ць; -лёны; *зак., што.* Уставіць шкло, шыбу ў раму. *З. вокны.*

**ЗАШКО́ДЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзіць; *зак., каму-чаму* і *без дап.* **1.** Прынесці шкоду каму-, чаму-н. *Лішняя капейка нікому не зашкодзіць.* **2.** Шкодна адбіцца на чым-н. *Агуркам зашкодзілі халады.*

**ЗАШМАЛЬЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цавáны; *зак., што.* Запэцкаць чым-н. тлустым да бляску. *З. камбінезон.* ‖ *незак.* **зашмальцо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **зашмальцавáцца**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цу́ецца; *незак.* **зашмальцо́ўвацца**, -аецца.

**ЗА́ШМАРГА**, -і, *ДМ* -рзе, *мн.* -і, -аў, *ж.* Зацяжная пятля, завязаная адным канцом. *Зашмаргі шаўковых шнуркоў накідкі.*

**ЗАШМАРГНУ́ЦЬ**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; -мóргнуты; *зак., што.* **1.** Тузануўшы, завесіць, запяць. *З. фіранку. З. кісет.* **2.** Зрабіць тугім, сцяг-

нуць (вузел, пятлю). *З. пятлю.* ‖ *незак.* **зашмо́ргваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАШМА́Т**, *прысл.* (разм.). Замнога, больш, чым трэба. *З. патрачана часу.*

**ЗАШМУЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Занасіць, выцерці, абтрапаць (вопратку). *З. рукавы.* **2.** Трэннем пашкодзіць скуру.

**ЗАШНУРАВА́ЦЦА** *гл.* шнуравацца.

**ЗАШНУРАВА́ЦЬ** *гл.* шнураваць.

**ЗАШПАКЛЯВА́ЦЬ** *гл.* шпакляваць.

**ЗАШПІЛІ́ЦЦА**, -ілю́ся, -і́лішся, -і́ліцца; *зак.* Зашпіліць на сабе што-н. ‖ *незак.* **зашпі́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАШПІЛІ́ЦЬ**, -ілю́, -і́ліш, -і́ліць; -і́лены; *зак., што.* Злучыць, змацаваць (краі адзення і пад.) пры дапамозе шпілек, кнопак або гузікаў, якія прасоўваюцца ў петлі. *З. пінжак.* ‖ *незак.* **зашпі́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАШПУНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* **1.** Заткнуць шпунтам (адтуліну ў бочцы). **2.** Зрабіць шпунт у чым-н. (спец.). *З. брус.* ‖ *незак.* **зашпунто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАШРУБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* Круцячы што-н., што мае шрубавую нарэзку, замацаваць, давесці да патрэбнага становішча. *З. гайку.* ‖ *незак.* **зашрубо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАШТАБНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* Прашыць, застрачыць (на швейнай машыне). *З. складку.*

**ЗАШТА́ТНЫ**, -ая, -ае (уст.). Пазаштатны, які не ўваходзіць у штат. *З. работнік.* ○ **Заштатны горад** (уст.) — горад, які ўваходзіць у павет, але не з'яўляецца адміністрацыйным цэнтрам павета.

**ЗАШТО́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* (разм.). Завесіць штораю. *З. акно.* ‖ *незак.* **заштóрваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАШТРЫХАВА́ЦЬ** *гл.* штрыхаваць.

**ЗАШТУКАВА́ЦЬ** *гл.* штукаваць.

**ЗАШТУ́РХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго.* Замучыць, прычыніць удары, боль, штурхаючы. *Дзяўчынку заштурхалі ў натоўпе.*

**ЗАШТУРХНУ́ЦЬ**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; -ту́рхнуты; *зак., каго-што.* Штуршкамі запхнуць куды-н. *З. скрынку пад стол.* ‖ *незак.* **зашту́рхваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАШТЭМПЕЛЯВА́ЦЬ** *гл.* штэмпеляваць.

**ЗАШЧАМІ́ЦЬ**, -чамлю́, -чэ́міш, -чэ́міць; -чэ́млены; *зак., што.* Сціснуць з двух бакоў. *З. пальцы дзвярамі.* ‖ *незак.* **зашчамля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ЗАШЧАПІ́ЦЦА**, -чаплю́ся, -чэ́пішся, -чэ́піцца; *зак.* **1.** Застаўшыся ў памяшканні, зачыніць дзверы на зашчапку. *З. ў хаце.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Зачыніцца на зашчапку (пра дзверы). ‖ *незак.* **зашчапля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ЗАШЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю́, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак.* **1.** *што.* Зачыніць на зашчапку. *З. дзверы.* **2.** *каго-што.* Пакінуць каго-н. у памяшканні, зашчапіўшы дзверы. *З. дзіця ў хаце.* ‖ *незак.* **зашчапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ЗА́ШЧАПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* Прыстасаванне для запірання дзвярэй у выглядзе кручка або засаўкі.

**ЗАШЧО́ЎКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Пачаць шчоўкаць. *Дзяцел зашчоўкаў і паляцеў.*

**ЗАШЧО́ЎКНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* Зачыніцца, шчоўкнуўшы запорам. *Дзверы зашчоўкнуліся.* ‖ *незак.* **зашчо́ўквацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗАШЧО́ЎКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* Замкнуць, зачыніць, шчоўкнуўшы запорам. ‖ *незак.* **зашчо́ўкваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗАШЧО́ЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які знаходзіцца за шчакой. *Зашчочныя мяшкі.*

**ЗАШЧЫПА́ЦЬ**, -ыплю́, -ы́плеш, -ы́пле *і* -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго.* Замучыць шчыпкамі.

**ЗАШЫРО́КІ**, -ая, -ае (разм.). Празмерна шырокі, шырэйшы, чым трэба.

**ЗАШЫФРАВА́ЦЬ** *гл.* шыфраваць.

**ЗАШЫ́ЦЦА**, -ыю́ся, -ы́ешся, -ы́ецца; *зак.* (разм.). **1.** Забрацца ў зацішнае, глухое месца і пад.; паглыбіцца ў што-н. *З. ў куток.* **2.** Не паспець зрабіць што-н. *З. з работай.* ‖ *незак.* **зашыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗАШЫ́ЦЬ**, -ыю́, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак., што.* **1.** Адрамантаваць, сшыўшы краі, а таксама злучыць швом канцы чаго-н. *З. падраны рукаў. З. мяшок.* **2.** Упакаваць, сшыўшы канцы ўпакоўкі. *З. пасылку.* ‖ *незак.* **зашыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **зашыва́нне**, -я, *н. і* **зашы́ўка**, -і, *ДМ* -шы́ўцы, *ж.*

**ЗАШЭ́РХЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які зашэрх, зацвярдзелы. *З. снег.*

**ЗАШЭ́РХНУЦЬ** *гл.* шэрхнуць.

**ЗАЯ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, зая́ў, *ж.* **1.** Афіцыйнае паведамленне ў вуснай або пісьмовай форме. *Зрабіць заяву для друку.* **2.** Пісьмовая просьба аб чым-н. *Падаць заяву на адпачынак.*

**ЗАЯВІ́ЦЦА**, -яўлю́ся, -я́вішся, -я́віцца; *зак.* (разм.). Паявіцца дзе-н., прыйсці куды-н. нечакана. *Заявіліся двое апоўначы.*

**ЗАЯВІ́ЦЬ**, -яўлю́, -я́віш, -я́віць; -я́ўлены; *зак., што, аб чым, пра што* і *са злуч.* «што». Зрабіць заяву аб чым-н. *З. аб сваім намеры. З. у міліцыю пра крадзеж.* ‖ *незак.* **заяўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ЗАЯДА́ЦЦА** *гл.* заесціся.

**ЗАЯДА́ЦЬ** *гл.* заесці.

**ЗАЯ́ДЛЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які надта прыахвоціўся да чаго-н., заўзяты. *З. курэц.* **2.** Які вядзецца, выконваецца з асаблівай упартасцю, зацяты. *Заядлая спрэчка.* **3.** Злосны, задзірысты. *З. чалавек.*

**ЗАЯЗДЖА́ЦЬ** *гл.* заехаць.

**ЗАЯ́ЎКА**, -і, *ДМ* -я́ўцы, *мн.* -і, -я́вак, *ж.* **1.** Заява аб сваіх правах або аб атрыманні правоў на што-н. *З. на агародна-садовы ўчастак.* **2.** Заява з указаннем на патрэбу ў чым-н. (у грашах, матэрыялах і пад.). *З. на будаўнічыя матэрыялы.* ‖ *прым.* **зая́вачны**, -ая, -ае.

**ЗАЯ́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (афіц.). Той, хто падае заяву (у 2 знач.). ‖ *ж.* **зая́ўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **зая́ўніцкі**, -ая, -ае.

**ЗАЯ́ХКАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *зак.* (разм.). Забрахаць пры пагоні за зайцам. *Ганчак заяхкаў.*

**ЗА́ЯЦ**, за́йца, *мн.* зайцы́, -о́ў, *м.* **1.** Невялікі звярок з атрада грызуноў, а таксама футра з яго. *Палахлівы як з. За двума зайцамі пагонішся — ні аднаго не зловіш* (прыказка). **2.** Безбілетны пасажыр або глядач, што пранік куды-н. без білета (разм.). *Ехаць зайцам* (у знач. прысл.). ‖ *памянш.-ласк.* **за́йка**, -і, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.; ужыв. таксама як ласк. зварот да каго-н.) *і* **за́йчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.; ужыв. таксама як ласк. зварот да каго-н.). ‖ *прым.* **зае́чы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Заечая натура* (перан.: палахлівая). ○ **Заечая губа** — прыроджанае ненармальнае раздваенне верхняй губы ў чалавека.

**ЗБАВІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Той, хто збаўляе каго-н. ад каго-, чаго-н.; выратавальнік. ‖ *ж.* **збаві́целька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек. ‖ *прым.* **збаві́цельскі**, -ая, -ае.

**ЗБА́ВІЦЦА**, збаўлю́ся, зба́вішся, зба́віцца; *зак., ад каго-чаго.* Выратавацца, пазбегнуць; сумець вызваліцца ад каго-, чаго-н. *З. ад смерці. З. ад лішніх клопатаў.* ‖ *незак.* **збаўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ЗБА́ВІЦЬ**[1], зба́ўлю, зба́віш, зба́віць; зба́ўлены; *зак., што* і *чаго.* **1.** Адняць частку чаго-н. з мэтай зманшэння (цаны, колькасці і пад.); некалькі зменшыць, убавіць. *З. дзесяць рублёў з агульнай сумы. З. крок* (пайсці цішэй). **2.** Пахудзець. *З. у вазе.* **3.** Зменшыць сілу чаго-н. *З. тон. З. газ.* ‖ *незак.* **збаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **збаўлéнне**, -я, *н. і* **зба́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.).

**ЗБА́ВІЦЬ**[2], зба́ўлю, зба́віш, зба́віць; зба́ўлены; *зак., каго (што) ад каго-чаго.* Выратаваць, даць пазбегнуць чаго-н. *З. ад смерці. З. душу ад пакут.* ‖ *незак.* **збаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ЗБАЁДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Марна патраціць. *З. усе грошы.* **2.** *каго-што.* Загубіць, знішчыць. *З. чалавека.*

**ЗБАЖЫНА́**, -ы́, *ж., зб.* Агульная назва хлебных злакаў, а таксама зерне хлебных злакаў. *Хваляй разбягаецца калгасная з. Мяшкі са збажынай.*

**ЗБА́ЛАВАЦЬ** *гл.* балаваць.

**ЗБАЛАНСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., што.* **1.** *гл.* балансаваць. **2.** Ураўнаважыць (у 2 знач.), узгадніць, суразмерыць. *З. магчымасці.* ‖ *наз.* **збалансава́насць**, -і, *ж.*

**ЗБАЛБАТНУ́ЦЬ**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; *зак., што* (разм.). Сказаць тое, чаго не варта было гаварыць; прагаварыцца ў гутарцы. *З. глупства.*

**ЗБАЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Змучаны болем, пакутамі. *Збалелае цела. Збалелае сэрца.*

**ЗБАЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е, *зак.* (разм.). Змучыцца, спакутавацца. *Збалела матчына сэрца.*

**ЗБАН**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Высокая гліняная пасудзіна, якая звужаецца ўверсе і мае звычайна ручку. ‖ *памянш.* **збано́к**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м. і* **збано́чак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* ‖ *прым.* **зба́нны**, -ая, -ае.

**ЗБАРАЗНІ́ЦЬ** *гл.* баразніць.

**ЗБЕГ**, -у, *м.* **1.** *гл.* збегчы. **2.** Месца, паглыбленне, па якім збягае вада. *Стаць на самым збегу вады.* **3.** Спалучэнне, злучэнне (спец.). *З. зычных гукаў.* ◊ **Збег акалічнасцей** — абставіны, якія склаліся пэўным чынам, ход падзей, які абумовіў што-н.

**ЗБЕ́ГАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Станіцца, змарыцца бегаючы. *Збегаўся, ледзь ногі валачэ.*

**ЗБЕ́ГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Схадзіць куды-н. хутка, бягом. *Збегай у магазін.*

**ЗБЕ́ГЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які збег, уцёк адкуль-н. *З. катаржнік.*

**ЗБЕ́ГЧЫ**, збягу́, збяжы́ш, збяжы́ць; збяжы́м, збежыце́, збягу́ць; збег, -гла; збяжы́; *зак.* **1.** *з чаго.* Бягом спусціцца ўніз. *З. ўніз па лесвіцы.* **2.** Знікнуць тайком, уцячы. *З. з палону.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сцячы (пра вадкасць). *Вада збегла ў канаву.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Знікнуць, прапасці (пра ўсмешку, чырвань і пад.). *Усмешка збегла з твару.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пераліцца цераз край пры кіпенні. *Увесь накіп збег.* ‖ *незак.* **збяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. *Сцежка збягае да ракі* (перан.: спускаецца).

**ЗБЕ́ГЧЫСЯ**, збягу́ся, збяжы́шся, збяжы́цца; збяжы́мся, збежыце́ся, збягу́цца; збе́гся, -глася; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Бягом сабрацца ў адным месцы (пра многіх). *З. на пажар. Збеглася ўся вёска.* **2.** Паспець бегчы разам з кім-н. (разм.). *Дзе ж мне з вамі, маладымі, з.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і *ссецціся* (у 2 знач.; разм.). **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Створожыцца, утварыць згусткі (пра малако). *Малако збеглася.* ‖ *незак.* **збяга́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗБЕ́ДНІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* (разм.). Прыкінуцца бедным, няшчасным. ‖ *незак.* **збядня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ЗБЕ́ДНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены *і* **ЗБЯДНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; *зак., каго-што.* **1.** Зрабіць бедным; абяднціць. *З. прыроду, высекшы лес.* **2.** Пазбавіць каго-, што-н. выразнасці, сілы. *З. літаратурны вобраз.* ‖ *незак.* **збядня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ЗБЕРАГЧЫ́**, -рагу́, -ражэ́ш, -ражэ́; -ражо́м, -ражаце́, -рагу́ць; збяро́г, зберагла́, -ло́; -ражы́; -ражо́ны; *зак., каго-што.* Захаваць, не даць знікнуць, сапсавацца, прапасці. *З. час. З. грошы. З. прадукты.* ‖ *незак.* **зберага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **зберажэ́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **зберага́льны**, -ая, -ае.

**ЗБЕРАГЧЫ́СЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ражэ́цца; -рагу́цца; збяро́гся, зберагла́ся, -ло́ся; *зак.* Захавацца непашкоджаным, нястрачаным, незрасходаваным. ‖ *незак.* **зберага́цца**, -а́ецца.

**ЗБЕРАЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* зберагчы. **2.** *мн.* Сабраная ў запас сума грошай. *Працоўныя зберажэнні. Захоўваць зберажэнні ў банку.*

**ЗБІВА́ЦЦА**[1] *гл.* збіцца[1].

**ЗБІВА́ЦЦА**[2] *гл.* збіцца[2].

**ЗБІВА́ЦЬ**[1] *гл.* збіць[1].

**ЗБІВА́ЦЬ**[2] *гл.* збіць[2].

**ЗБІРА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які займаецца збіраннем чаго-н. (якіх-н. рэдкасцей, твораў народнай творчасці і пад.). *З. фальклору.* **2.** Ёмішча, у якім збіраецца якая-н. вадкасць (спец.). *З. вады.* ‖ *ж.* **збіра́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 1 знач.). ‖ *прым.* **збіра́льніцкі**, -ая, -ае.

**ЗБІРА́ЛЬНІЦТВА**, -а, *н.* **1.** Дзейнасць збіральніка (у 1 знач.). *Захапіцца збіральніцтвам.* **2.** Здабыванне сродкаў існавання шляхам збірання грыбоў, ягад і інш. ‖ *прым.* **збіра́льніцкі**, -ая, -ае.

**ЗБІРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Абагульнены, які адносіцца да многіх. *З. вобраз.* ‖ *наз.* **збіра́льнасць**, -і, *ж.*

**ЗБІРА́ННЕ** *гл.* сабрацца.

**ЗБІРА́ЦЦА** *гл.* сабрацца.

**ЗБІРА́ЦЬ** *гл.* сабраць.

**ЗБІ́ЦЦА**[1], саб'ю́ся, саб'е́шся, саб'е́цца; саб'ёмся, саб'яце́ся, саб'ю́цца; збі́ўся, збі́лася; збі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ссунуцца з патрэбнага месца. *Шапка збілася набок.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаптацца, скрывіцца. *Абцасы збіліся.* **3.** *з чаго і без дап.* Адхіліцца ад правільнага шляху, ад правільнага ходу думкі; памыліцца. *З. з дарогі. З. ў паказаннях* (дапусціць супярэчнасць). *З. пры лічэнні.* ◊ **Збіцца з ног** (разм.) — вельмі станіцца ад беганіны, клопатаў. ‖ *незак.* **збіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗБІ́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., саб'е́цца; збі́ўся, збі́лася; *зак.* **1.** Згусціцца ад узбоўтвання, ператварыцца ў шчыльную масу. *Масла збілася.* **2.** Сабрацца разам, у цесным. *Людзі збіліся ў кучу.* ‖ *незак.* **збіва́цца**, -а́ецца.

**ЗБІЦЬ**[1], саб'ю́, саб'е́ш, саб'е́; саб'ём, саб'яце́, саб'ю́ць; збі́ў, збі́ла; збі; збі́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Прымусіць адваліцца, упасці, ударам зрушыць з месца. *З. з ног. З. яблык з дрэва. З. варожы самалёт.* **2.** *што.* Стаптаць, скрывіць. *З. абцасы.* **3.** *каго (што).* Моцна пабіць, знявечыць пабоямі. *З. да паўсмерці.* **4.** *што.* Знізіць, збавіць. *З. цану. З. тэмпературу лякарствамі. З. гонар.* **5.** *перан., каго (што).* Адхіліць ад правільнага шляху; заблытаць. *З. з дарогі. З. з панталыку* (выклікаць замяшанне, заблытаць). *З. цяжкім пытаннем.* ‖ *незак.* **збіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗБІЦЬ**[2], саб'ю́, саб'е́ш, саб'е́; саб'ём, саб'яце́, саб'ю́ць; збі́ў, збі́ла; збі; збі́ты; *зак.* **1.** *што.* Ударамі злучыць, саставіць. *З. скрынку з дошак.* **2.** *што.* Узбіваючы, узбоўтваючы, ператварыць у шчыльную масу. *З. масла.* **3.** *каго-што.* Сабраць разам, сагнаць у кучу (разм.). *З. кароў у кучу.* ‖ *незак.* **збіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗБЛІ́ЗІЦЦА**, зблі́жуся, зблі́зішся, зблі́зіцца; *зак.* **1.** Наблізіцца адзін да аднаго. *Машыны зблізіліся.* **2.** Уступіць у блізкія, сяброўскія адносіны. *Новыя суседзі з намі хутка зблізіліся.* ‖ *незак.* **збліжа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **збліжэ́нне**, -я, *н.*

**ЗБЛІ́ЗІЦЬ**, зблі́жу, зблі́зіш, зблі́зіць; зблі́жаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Наблізіць аднаго да другога. *З. канцы дроту.* **2.** *каго (што).* Прымусіць уступіць у блізкія, сяброўскія адносіны. *Агульныя інтарэсы іх зблізілі.* ‖ *незак.* **збліжа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **збліжэ́нне**, -я, *н.*

**ЗБЛІ́ЗКУ**, *прысл.* З блізкай адлегласці. *Разглядзець каго-, што-н. з.*

**ЗБЛЫ́ТАЦЦА** *гл.* блытацца.

**ЗБЛЫ́ТАЦЬ** *гл.* блытаць.

**ЗБЛЯДНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў бледным. *З. твар.*

**ЗБЛЯДНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Стаць бледным. ‖ *незак.* **бляднець**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**ЗБЛЯ́КЛЫ**, -ая, -ае. Які страціў яркасць афарбоўкі або свежасць. *Зблякдыя фарбы. Збляклыя кветкі.*

**ЗБЛЯ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; збляк, -кла; -ні; *зак.* **1.** Страціць яркасць, афарбоўку. *Ружовыя фарбы збляклі.* **2.** Завянуць, страціць свежасць. *Трава зблякла.*

**ЗБО́ЖЖА**, -а, *н.* **1.** Агульная назва хлебных злакавых раслін, з зерня якіх выпрацоўваюцца мука і крупы. **2.** *зб.* Зерне, насенне гэтых раслін. *Сеяць з. Змалоць з.* ‖ *прым.* **збо́жжавы**, -ая, -ае. *Збожжавыя культуры.*

**ЗБОЖЖА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да збожжа, напр.: *збожжакамбайн, збожжапагрузчык, збожжапастаўкі, збожжаправод, збожжасейны, збожжасклад.*

**ЗБОЖЖАВЫТВО́РЧЫ**, -ая, -ае (спец.). Які займаецца вырошчваннем, вытворчасцю збожжа. *З. раён.*

**ЗБО́ЖЖАВЫЯ**, -ых. Злакавыя расліны (жыта, пшаніца, ячмень, авёс і пад.), зерне якіх скарыстоўваецца для атрымання прадуктаў харчавання і фуражу. *Сяўба збожжавых.*

**ЗБОЖЖАНАРЫХТО́ЎКІ**, -то́вак, *адз.* збожжанарыхто́ўка, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* Дзяржаўная планавая нарыхтоўка збожжа. ‖ *прым.* **збожжанарыхто́ўчы**, -ая, -ае.

**ЗБОЖЖАСХО́ВІШЧА**, -а, *н.* Памяшканне для захоўвання збожжа.

**ЗБОЖЖАЎБО́РАЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да ўборкі хлеба. *Збожжаўборачная кампанія. З. камбайн.*

**ЗБОЖЖАЎБО́РКА**, -і, *ДМ* -ўбо́рцы, *ж.* **1.** Уборка спелай збажыны. **2.** Перыяд, калі праводзіцца ўборка каласавых.

**ЗБОЙ**[1], збо́ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Вялікая колькасць каго-, чаго-н., цесна збітага ў адным месцы. *З. машын.*

**ЗБОЙ**[2], збо́ю, *мн.* -і, -яў, *м.* (спец.). Замінка ў руху каня. *У канцы дыстанцыі ў скакуна адбыўся з.*

**ЗБОЙ**[3], збо́ю, *м.* (спец.). Галава, ногі і вантробы забітай жывёлы як ежа. *Ялавічны з.* ‖ *прым.* **збо́йны**, -ая, -ае.

**ЗБО́КУ**, *прысл.* **1.** З краю, не ў сярэдзіне, не ў цэнтры. *З. ад дарогі. Стаць з.* **2.** З месца, аддаленага ад каго-, чаго-н. *Адысці ўбок і назіраць з. Калі глядзець на гэта з., дык здаецца, што ўсё тут добра* (перан.). **3.** *у знач. прыназ. з Р.* Побач з кім-, чым-н., паблізу каго-, чаго-н. *З. дарогі.* ◊ **Збоку прыпёка** (разм.) — пра каго-, што-н. пабочнае, лішняе.

**ЗБО́ЛЬШАГА**, *прысл.* (разм.). У асноўным, у галоўных рысах або не ў поўную меру, часткова. *Расказаць пра сябе з.*

**ЗБОР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* сабрацца, сабраць. **2.** Тое, што сабрана; агульная колькасць чаго-н. сабранага. *Валавы з. збожжа.* **3.** Збіраемыя ці сабраныя за што-н. або на што-н. грошы. *Памольны з. У тэатры поўны з.* **4.** *чаго.* Сукупнасць сабраных і выдадзеных разам якіх-н. тэкстаў. *З. законаў. З. твораў пісьменніка.* **5.** Сход членаў якой-н. арганізацыі. *З. ветэранаў вайны.* **6.** Кароткачасовае знаходжанне ваеннаабавязаных у распараджэнні ваеннага ведамства для абучэння, а таксама (звычайна *мн.*) знаходжанне дзе-н. групы спартсменаў для трэніровак. *Лагерны з. Вучэбна-трэніровачныя зборы.* **7.** *мн.* Падрыхтоўка да якога-н. дзеяння (ад'езду, адпраўлення куды-н.). *Зборы ў дарогу.* ○ **Гербавы збор** — асобы дзяржаўны збор (да 1930 г.) пры афармленні дакументаў, які рэалізоўваўся шляхам продажу марак пэўнай вартасці.

**ЗБО́РАЧНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для зборкі машын і іншых механізмаў з гатовых дэталей. *З. цэх.*

**ЗБО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** *гл.* сабраць. **2.** Складка на адзежыне, матэрыяле. *Спадніца ў зборкі.*

**ЗБО́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Кніга, у якой сабраны якія-н. творы, дакументы. *З. вершаў. З. архіўных дакументаў.* **2.** Рэзервуар для збору якой-н. вадкасці, газу (спец.). *З. нафты.*

**ЗБО́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца месцам збору каго-н. *З. пункт.* **2.** Які складаецца з аб'яднаных у цэлае разнародных частак. *Зборная каманда* (у спорце: з лепшых ігракоў розных каманд). **3.** Састаўлены з асобных гатовых дэталей, элементаў; заснаваны на прымяненні такіх дэталей. *З. дом. Зборныя канструкцыі. Зборнае домабудаўніцтва.* **4.** Абагульнены, які адносіцца да многіх. *З. літаратурны вобраз.* **5.** У граматыцы — які абазначае сукупнасць прадметаў ці асоб, што ўспрымаюцца як адзінае цэлае. *Зборныя назоўнікі.* ‖ *наз.* **збо́рнасць**, -і, *ж.*

**ЗБО́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Асоба, якая займаецца зборам чаго-н., збірае што-н. *З. бавоўны. З. членскіх узносаў.* **2.** Рабочы, які займаецца зборкай чаго-н. *З. матораў.* ‖ *ж.* **збо́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **збо́ршчыцкі**, -ая, -ае.

**ЗБО́РЫШЧА**, -а, *м.* (разм., неадабр.). Сход людзей, натоўп. *Шумнае з. Што тут у вас за з.?*

**ЗБО́ЎТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* або *што з чым.* Боўтаючы, перамяшаць. *З. лякарства.* ‖ *незак.* **збо́ўтваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗБО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак.* Сысці або з'ехаць убок, даючы каму-н. дарогу, ці звярнуць убок дарогі, мяняючы напрамак руху. *Збоч, бо не разміне́шся з возам. З. у завулак.* ‖ *незак.* **збо́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗБРАХА́ЦЬ**, збрашу́, збрэ́шаш, збрэ́ша; збрашы́; *зак., што* (разм.). Схлусіць.

**ЗБРАХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* і *аднакр., што* і *без дап.* (разм.). Тое, што і *збрахаць.*

**ЗБРАШУРАВА́ЦЬ** *гл.* брашураваць.

**ЗБРАЯНО́СЕЦ**, -но́сца, *мн.* -но́сцы, -но́сцаў, *м.* У Сярэднія вякі: малады воін, які насіў зброю рыцара.

**ЗБРОД**, -у, *М* -дзе, *м., зб.* (разм., пагард.). Людзі, якія належаць да разбэшчаных, злачынных, антыграмадскіх элементаў. *Усякі з. Фашысцкі з.*

**ЗБРО́ДЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Шкадлівы, памаўзлівы. *Збродлівай кошцы хвост уцінаюць* (прымаўка).

**ЗБРО́ДНЫ**, -ая, -ае (разм.). Выпадкова сабраны; разнародны, разнамасны. *Збродная кампанія.*

**ЗБРО́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па вырабе зброі.

**ЗБРО́СНЕЛЫ**, -ая, -ае. Заплеснелы (пра вадкасць). *Зброснелая вада.*

**ЗБРО́СНЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *зак.* Заплеснець (пра вадкасць). *Вада ў сажалцы збраснела.*

**ЗБРО́Я**, -і, *ж.* Усякі сродак, прыстасаванне, тэхнічна прыгоднае для нападу ці абароны, а таксама сукупнасць такіх сродкаў. *Агнястрэльная з. Халодная з.* (шабля, кінжал, нож і пад.). *Стралковая з.* (ружжо, рэвальвер і пад.). *Артылерыйская з.* (гармата, гаўбіца і пад.). *Ядзерная з. Абараняцца са зброяй у руках. Ідэйная з.* (перан.). *Скласці зброю* (перан.: здацца; высок.). *Узняць зброю* (пачаць вайну або паўстаць са зброяй у руках; высок.). *Бразгаць зброяй* (пагражаць вайной; кніжн.). ‖ *прым.* **збро́евы**, -ая, -ае *і* **збро́йны**, -ая, -ае. *Зброевая (збройная) майстэрня.*

**ЗБРУ́Я**, -і, *ж.* Прыналежнасці для запрагання каня; вупраж. ‖ *прым.* **збру́евы**, -ая, -ае *і* **збру́йны**, -ая, -ае.

**ЗБРЫСЦІ́**, збрыду́, збрыдзе́ш, збрыдзе́; збрыдзём, збрыдзяце́, збрыду́ць; збрыў, -рыла́, -ло́; збрыдзі́; *зак.* (разм.). Сысці куды-н., пакінуўшы сваё месца. *Цяля некуды збрыло.*

**ЗБРЫЦЬ**, збры́ю, збры́еш, збры́е; збры́ты; *зак., што.* Зрэзаць брытвай. *З. бараду.* ‖ *незак.* **збрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗБУДАВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Будынак, пабудова (рознага віду і прызначэння). *Спартыўнае з. Гідратэхнічныя збудаванні.*

**ЗБУДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -два́ны; *зак., што.* Пабудаваць, выбудаваць. *З. палац.*

**ЗБУЦВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які збуцвеў, струхнелы, спарахнелы. *Крыж з. паваліўся.*

**ЗБУЦВЕ́ЦЬ** *гл.* буцвець.

**ЗБУЯ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які збуяў, пышна разросся (пра расліны). *Збуялае каліўе бульбы.*

**ЗБУЯ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́е; *зак.* Пышна разрасціся націннем на шкоду пладанашэнню. *Буракі збуялі.*

**ЗБЫТ**, -у, *М* збы́це, *м.* Продаж гатовай прадукцыі. *Рынак збыту.* ‖ *прым.* **збытавы́**, -а́я, -о́е.

**ЗБЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., збу́дзецца; збы́ўся, збыла́ся, -ло́ся; *зак.* Ажыццявіцца, здзейсніцца, стаць сапраўдным. *Падзеі збыліся.* ‖ *незак.* **збыва́цца**, -а́ецца.

**ЗБЫЦЬ**, збу́ду, збу́дзеш, збу́дзе; збыў, збыла́, -ло́; збудзь; збы́ты; *зак., каго-што.* **1.** Знайсці збыт чаму-н., прадаць. *З. тавар.* **2.** Пазбавіцца, вызваліцца ад каго-, чаго-н. (разм.). *З. з рук. З. бяду з галавы.* ‖ *незак.* **збыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗБЭ́СЦІЦЬ** *гл.* бэсціць.

**ЗБЯГА́ЦЦА** *гл.* збегчыся.

**ЗБЯГА́ЦЬ** *гл.* збегчы.

**ЗБЯДНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які збяднеў, стаў бедны. ‖ *наз.* **збядне́ласць**, -і, *ж.*

**ЗБЯДНЕ́ЦЬ** *гл.* бяднець.

**ЗБЯДНЯ́ЦЦА** *гл.* збедніцца.

**ЗБЯДНЯ́ЦЬ** *гл.* збедніць.

**ЗБЯЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які збялеў, стаў белым, бледным. *З. твар. З. ад інею лазняк.*

**ЗБЯЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Стаць белым, пабялець. *З. ад злосці.*

**ЗБЯНТЭ́ЖАНЫ**, -ая, -ае. Разгублены, атарапелы або які выражае разгубленасць, атарапеласць. *З. выгляд.* ‖ *наз.* **збянтэ́жанасць**, -і, *ж.*

**ЗБЯНТЭ́ЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *зак.* Прыйсці ў замяшанне, разгубіцца. *З. ад нечаканасці.*

**ЗБЯНТЭ́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., каго (што).* Выклікаць замяшанне, разгубленасць. *З. каго-н. пахвалой.*

**ЗВА́ДА**, -ы, *ж.* Сварка, склока, разлад. ‖ *прым.* **зва́дны**, -ая, -ае.

**ЗВАДЗІ́ЦЬ**, зваджу́, зво́дзіш, зво́дзіць; *зак., каго (што).* Адвесці куды-н. і прывесці назад. *З. хворага да ўрача.*

**ЗВА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -дак, *ж.* (разм.). Тое, што і *звада.*

**ЗВАДКАВА́НЫ**, -ая, -ае (спец.). Ператвораны ў вадкі стан. *З. газ.*

**ЗВА́ДЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Схільны да звадак, звадніцтва. *Звадлівая суседка.* **2.** Які суправаджаецца звадкамі, з'яўляецца звадкай. *Звадлівыя адносіны.* ‖ *наз.* **зва́длівасць**, -і, *ж.*

**ЗВА́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які займаецца звадкамі. ‖ *ж.* **зва́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **зва́дніцкі**, -ая, -ае.

**ЗВА́ДНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Учыняць звадкі. ‖ *наз.* **зва́дніцтва**, -а, *н.*

**ЗВАДЫЯ́Ш**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Зводнік, падбухторшчык. ‖ *ж.* **звадыя́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак. ‖ *прым.* **звадыя́цкі**, -ая, -ае.

**ЗВАЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., на каго-што* і з дадан. (звычайна з адмоўем). Звяртаць увагу на каго-, што-н., надаваць значэнне каму-, чаму-н. *Ён ні на што не зважае.* ○ **Зважай!** — каманда, якая азначае: стаяць навыцяжку, нерухома.

**ЗВА́ЖЫЦЬ**[1], -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., каго-што.* Вызначыць вагу каго-, чаго-н. або адважыць пэўную колькасць чаго-н. *З. тавар. З. паўкілаграма цукру.* ‖ *звар.* **зва́жыцца**, -жуся, -жышся, -жыцца.

**ЗВА́ЖЫЦЬ**[2], -жу, -жыш, -жыць; *зак., каму* (разм.). Зрабіць уступку, уважыць. *Умей з. малодшаму.* ‖ *незак.* **зважа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗВАЗІ́ЦЬ**, зважу́, зво́зіш, зво́зіць; *зак., каго-што.* Адвезці і прывезці назад. *З. дзіця да доктара.*

**ЗВАЛАЧЫ́**, -лаку́, -лачэ́ш, -лачэ́; -лачо́м, -лачаце́, -лаку́ць; -ло́к, -лакла́, -ло́; -лачы́; -ло́чаны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Цягнучы, зняць з чаго-н. *З. мех з воза.* **2.** Валочачы, знесці ў адно месца. *З. галлё ў кучу.* **3.** Знесці куды-н. далёка. *Дзеці звалаклі граблі.* ‖ *незак.* **звалака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗВАЛАЧЫ́СЯ**, -лаку́ся, -лачэ́шся, -лачэ́цца; -лачо́мся, -лачаце́ся, -лаку́цца; -ло́кся, -лакла́ся, -ло́ся; -лачы́ся; *зак.* (разм.). **1.** Сысці куды-н. *Карова кудысьці звалаклася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сысціся адусюль, сабрацца ў адно месца. *Прадстаўнікі навакольных вёсак звалакліся на сход у Жарнасекі.*

**ЗВАЛІ́ЦЦА**[1], -алю́ся, -а́лішся, -а́ліцца; *зак.* **1.** *гл.* валіцца. **2.** Захварэўшы, злегчы ў ложак (разм.). *Доўгі час дрэнна адчуваў сябе і, нарэшце, зваліўся.* ◊ **Гара з плячэй звалілася** (разм.) — пра вызваленне ад вялікіх клопатаў, цяжкіх перажыванняў. ‖ *незак.* **зва́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗВАЛІ́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., зва́ліцца; *зак.* Атрымацца ў выніку валення (пра вырабы з воўны). *Сукно добра звалілася.*

**ЗВАЛІ́ЦЬ**[1] *гл.* валіць[1].

**ЗВАЛІ́ЦЬ**[2] *гл.* валіць[2].

**ЗВА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Месца, куды выкідаюць, звальваюць што-н. *Вывезці смецце на звалку.* ‖ *прым.* **зва́лачны**, -ая, -ае.

**ЗВАЛЬНЕ́ННЕ** *гл.* зводьніцца.

**ЗВАЛЬНЯ́ЦЦА** *гл.* зводьніцца.

**ЗВАЛЬНЯ́ЦЬ** *гл.* звольніць.

**ЗВАЛЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́ецца; *зак.* Застаўшыся нявыкарыстаным, прыйсці ў непрыгоднасць. *Кофта так і звалялася.*

**ЗВАНА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Той, хто звоніць у царкоўныя званы. ‖ *прым.* **званáрскі**, -ая, -ае.

**ЗВАНІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; *безас.; зак., каго.* Пра рвоту ў каго-н. *Хворага званітавала.*

**ЗВАНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Вежа са званамі пры царкве. *Глядзець са сваёй званіцы на што-н.* (са свайго, абмежаванага пункту гледжання; разм.). ‖ *прым.* **зва́нічны**, -ая, -ае.

**ЗВАНІ́ЦЬ**, званю́, зво́ніш, зво́ніць; *незак.* **1.** Утвараць гукі пры дапамозе звона, званка. **2.** *каму.* Выклікаць званком тэлефоннага апарата для размовы па тэлефоне. *З. па тэлефоне.* **3.** *перан., пра каго-што, аб кім-чым* і з дадан. Разносіць чуткі, плёткі, учыняць шум (разм.). *Нечага пра гэта ўсюды з.* ◊ **Званіць у званы** (разм.) — усюды расказваць пра што-н. ‖ *зак.* **пазвані́ць**, -ваню́, -во́ніш, -во́ніць (да 1 і 2 знач.).

**ЗВАНКО́ВЫ**[1] *гл.* званок.

**ЗВАНКО́ВЫ**[2] *гл.* звонкі[2].

**ЗВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Афіцыйна прысвоенае найменне, якое вызначае ступень заслуг, службовага становішча, кваліфікацыі ў галіне якой-н. дзейнасці. *Воінскія званні. Вучонае з.* **2.** Ганаровае найменне як адна з форм узнагароды і заахвочвання для далейшых поспехаў дзеячаў працы, навукі, культуры і інш. *З. Героя Сацыялістычнай Працы. З. народнага артыста Беларусі.* **3.** У дарэвалюцыйнай Расіі — аднесенасць да якой-н. грамадскай групы са спадчыннымі правамі і абавязкамі; саслоўе. *Ён з духоўнага звання. Купецкае з.* **4.** У дарэвалюцыйнай Расіі — узаконенае абазначэнне службовага становішча па табелі аб рангах; чын. *Быў калежскім асэсарам. Ён меў з. камер-юнкера.* ◊ **Адно званне** (разм.) — пра тое, што не адпавядае свайму найменню. *Адно з., што горад, а на самай справе — пасёлак.* **Ані звання** *каго-чаго* (разм.) — і ў паміне няма.

**ЗВАНО́К**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.* **1.** Невялікі звон (у 1 знач.), а таксама прыстасаванне для гукавых сігналаў. *Дзвярны з. Электрычны з.* **2.** Гук, гукавы сігнал, утвораны такім звонам ці спецыяльным прыстасаваннем. *Прагучаў з. Тэлефонны з. Заняткі пачынаюцца па званку.* ‖ *памянш.* **звано́чак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **званко́вы**, -ая, -ае.

**ЗВАНЧЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *незак.* Станавіцца званчэйшым. *Голас званчэе.* ‖ *зак.* **пазванчэ́ць**, -э́е.

**ЗВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які атрымаў запрашэнне. *З. госць.* **2.** З запрошанымі гасцямі. *З. абед.* ◊ **Так званы** — ужыв. для выражэння ўмоўнага значэння, іранічных або адмоўных адносін да каго-, чаго-н. *Вунь яны, вашы так званыя спецыялісты.*

**ЗВАРАЖЫ́ЦЬ** *гл.* варажыць.

**ЗВАРАЧА́ЦЦА** *гл.* звярнуцца.

**ЗВАРАЧА́ЦЬ** *гл.* звярнуць.

**ЗВА́РАЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да зваркі металу. *Зварачныя работы. З. цэх.*

**ЗВА́РКА** *гл.* зварыць.

**ЗВАРНЫ́**, -а́я, -о́е. Які атрымліваецца шляхам зваркі. *Зварныя трубы.*

**ЗВАРО́Т**, -у, *М* -ро́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вяртанне адкуль-н. назад, на ранейшае месца. *З. на радзіму. Па звароце ў Мінск.* **2.** Заклік, выступленне, звернутае да каго-н. *З. дэпутатаў да народа.* **3.** У граматыцы: група слоў, якія ўтвараюць пэўнае адзінства, слоўны выраз. *Дзеепрыслоўны з.*

**ЗВАРО́ТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* У граматыцы: слова ці група слоў, якімі называюць таго, да каго звяртаюцца. *Выдзеліць коскамі з.*

**ЗВАРО́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вядзе назад (пра шлях, дарогу). *З. шлях.* **2.** Які аднаўляецца, часам узнікае зноў. *З. тыф.* **3.** У граматыцы: які абазначае адносіны да суб'екта маўлення. *З. дзеяслоў.* ○ **Зваротны адрас** — адрас адпраўшчыка пісьма, пасылкі і пад.

**ЗВАРО́ЧВАЦЦА** *гл.* звярнуцца.

**ЗВАРО́ЧВАЦЬ** *гл.* звярнуць.

**ЗВАРУХНУ́ЦЦА** *гл.* варушыцца.

**ЗВАРУХНУ́ЦЬ** *гл.* варушыць.

**ЗВА́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы па зварцы металаў. ‖ *ж.* **зва́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЗВАРЫ́ЦЦА**, -ару́ся, -а́рышся, -а́рыцца; *зак.* **1.** *гл.* варыцца. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Злучыцца шляхам зваркі. ‖ *незак.* **зва́рвацца**, -аецца (да 2 знач).

**ЗВАРЫ́ЦЬ**, -ару́, -а́рыш, -а́рыць; -а́раны; *зак.* **1.** *гл.* варыць. **2.** *што.* Злучыць, запаўняючы прамежкі расплаўленым металам ці сціскаючы, скоўваючы ў распаленым выглядзе. *З. секцыі трубаправода.* ‖ *незак.* **зва́рваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач). ‖ *наз.* **зва́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 2 знач.). *Газавая з. Аўтагенная з.*

**ЗВАР'ЯЦЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які страціў розум, псіхічна хворы. *З. чалавек. Крычыць нібы з.* **2.** Безразважны, раз'юшаны (разм.). *З. ад злосці, ён біў посуд.* ‖ *наз.* **звар'яце́ласць**, -і, *ж.* (да 2 знач.; разм.).

**ЗВАР'ЯЦЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** Захварэць на псіхічнае расстройства. **2.** Страціць развагу, раз'юшыцца (разм.).

**ЗВАСТРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., зво́стрыцца; *зак.* Стаць вельмі тонкім, вузкім ад вастрэння або доўгага ўжывання. *Нож звастрыўся.* ‖ *незак.* **зво́стрывацца**, -аецца.

**ЗВАСТРЫ́ЦЬ**, звастру́, зво́стрыш, зво́стрыць; зво́страны; *зак., што.* **1.** Зрэзаць, знішчыць няроўнасці тачыльным інструментам. *З. няроўнасці на лязе.* **2.** Пра нож і іншую прыладу: зрабіць тонкім, вузкім ад доўгага ўжывання. ‖ *незак.* **зво́стрываць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗВА́ЦЦА**, заву́ся, заве́шся, заве́цца; завёмся, завяце́ся, заву́цца; заві́ся; *незак.* Насіць імя, называцца. *Гэты курорт завецца Сочы. Каб людзьмі з., трэба людзьмі быць* (прыказка).

**ЗВАЦЬ**, заву́, заве́ш, заве́; завём, завяце́, заву́ць; зваў, зва́ла; заві́; зва́ны; *незак., каго (што).* **1.** Голасам, сігналам прасіць

наблізіцца. *З. на дапамогу.* **2.** Запрашаць куды-н. *З. у госці.* **3.** *кім.* Называць. *Яго звалі Міхасём.* ‖ *зак.* **пазва́ць**, -заву́, -заве́ш, -заве́; -завём, -завяце́, -заву́ць; -зва́ў, -звала́; -заві́; -зва́ны (да 1 і 2 знач.).

**ЗВЕ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* **1.** Атрымаць звесткі аб чым-н., пазнаць што-н. *З. невядомае.* **2.** Спазнаць на вопыце, перажыць. *З. многа гора.* ‖ *незак.* **зве́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗВЕ́ЗЦІ**, звязу́, звязе́ш, звязе́; звязём, звезяце́, звязу́ць; звёз, зве́зла; звязі́; зве́зены; *зак., каго-што.* **1.** Возячы, даставіць куды-н., перавезці (пра ўсё, многае). *З. каменне ў кучу. З. хлеб з поля.* **2.** Везучы, перамясціць зверху ўніз. *З. воз з гары.* **3.** Ад'язджаючы, непрыметна ўзяць з сабой і адвезці куды-н. *Паехаў і кнігу звёз.* ‖ *незак.* **зво́зіць**, звож́у, зво́зіш, зво́зіць. ‖ *наз.* **звоз**, -у, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**ЗВЕКАВА́ЦЬ**, звяку́ю, звяку́еш, звяку́е; звяку́й; звекава́ны; *зак.* Пражыць век дзе-н., у якім-н. стане. *Ён так і звекаваў бабылём.*

**ЗВЕ́КУ**, *прысл.* З даўніх часоў, спрадвеку. *Ён з. глухі.*

**ЗВЕЛІКАДУ́ШНІЧАЦЬ** *гл.* велікадушнічаць.

**ЗВЕННЯВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* звяно. **2.** *у знач. наз.* **звеннявы́**, -о́га, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.* Кіраўнік звяна (у 3 знач.). *Нарада звеннявых.* ‖ *ж.* **звеннява́я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х.

**ЗВЕР**, -а, *мн.* звяры́, -о́ў, *м.* **1.** Дзікая, звычайна драпежная жывёліна. *Пушны з.* **2.** *перан.* Пра вельмі злога, жорсткага чалавека. ‖ *памянш.* **звяро́к**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *зб.* **звяр'ё**, -я́, *н.* ‖ *прым.* **звяры́ны**, -ая, -ае. *Звярыныя сляды. З. страх* (надзвычай моцны). *З. арнамент* (з адлюстраваннем жывёл).

**ЗВЕРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да звера, звяроў, такі, як у звера, звяроў, напр.: *зверабойны, звералоў, зверападобны;* 2) які мае адносіны да зверагадоўлі, напр.: *зверагаспадарка, зверапітомнік, звераферма.*

**ЗВЕРАБО́Й**[1], -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Паляўнічы на звера. ‖ *прым.* **зверабо́йны**, -ая, -ае. *З. промысел.*

**ЗВЕРАБО́Й**[2], -ю, *м.* Травяністая лекавая расліна, звычайна з жоўтымі кветкамі. *Настойка зверабою.* ‖ *прым.* **зверабо́йны**, -ая, -ае. *Сямейства зверабойных* (наз.).

**ЗВЕРАВА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Падобны з выгляду на звера. **2.** У абыходжанні — грубы, злосны, нелюдзімы. *З. чалавек.* ‖ *наз.* **зверава́тасць**, -і, *ж.*

**ЗВЕРАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па звераводстве; зверагадовец.

**ЗВЕРАВО́ДСТВА**, -а, *н.* Тое, што і *зверагадоўля.* ‖ *прым.* **зверавóдчы**, -ая, -ае.

**ЗВЕРАГАДО́ВЕЦ**, -до́ўца, *мн.* -до́ўцы, -до́ўцаў, *м.* Спецыяліст па зверагадоўлі; зверавод.

**ЗВЕРАГАДО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Прамысловае развядзенне пушных звяроў; звераводства. ‖ *прым.* **зверагадо́ўчы**, -ая, -ае. *Зверагадоўчая ферма.*

**ЗВЕРАДЗІ́ЦЬ** *гл.* верадзіць.

**ЗВЕРАЛО́Ў**, -ло́ва, *мн.* -ло́вы, -ло́ваў, *м.* Прамысловы паляўнічы на звяроў.

**ЗВЕРАЛО́ЎСТВА**, -а, *н.* Прамысловае паляванне на звяроў. ‖ *прым.* **зверало́ўны**, -ая, -ае. *З. промысел.*

**ЗВЕРАНЯ́** *і* **ЗВЕРАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня звера.

**ЗВЕРАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Які нагадвае звера, падобны да звера. *З. выгляд.* ‖ *наз.* **зверападо́бнасць**, -і, *ж.*

**ЗВЕРАФЕ́РМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Прадпрыемства па вырошчванні каштоўных звяроў.

**ЗВЕ́РГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Сілай пазбавіць улады, скінуць; знішчыць, спыніць існаванне чаго-н. (высок.). *З. цара. З. самадзяржаўе.* **2.** *каго* і *без дап.* Нарадзіць заўчасна (пра жывёл; разм.). *Карова звергла.* ‖ *незак.* **звярга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **звяржэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.)

**ЗВЕ́РСКІ**, -ая, -ае. **1.** Уласцівы зверу (у 2 знач.); люты, жорсткі. *Зверскае забойства.* **2.** Вельмі моцны, надзвычайны (разм.). *З. апетыт.* ‖ *наз.* **зве́рства**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (да 1 знач.).

**ЗВЕ́РСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** *гл.* зверскі. **2.** Зверскі ўчынак, жорсткасць. *Фашысцкія зверствы.*

**ЗВЕ́РСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* Учыняць зверства.

**ЗВЕ́РХУ**, *прысл.* **1.** У напрамку ўніз. *З. пасыпалася лісце. Глядзець з. ўніз* (таксама перан.: адносіцца да каго-н. з пагардай, высакамерна). **2.** З боку вышэйстаячых органаў. *Дырэктыва з.* **3.** Па паверхні, у верхняй частцы чаго-н. *Тлушч плавае з. Масла сапсавалася толькі з.*

**ЗВЕ́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік па зверцы чаго-н. з чым-н. ‖ *ж.* **зве́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЗВЕРЫНА́**, -ы́, *ж.* **1.** *зб.* Звяры. *У лесе многа зверыны.* **2.** *м.* Вялікі звер (разм.).

**ЗВЕ́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* **1.** *з чым.* Зрабіць зверку, праверыць што-н. па якіх-н. крыніцах. *З. са слоўнікам.* **2.** Тое, што і *зняверыцца* (разм.). ‖ *незак.* **звяра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗВЕ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак., што з чым.* Праверыць, параўнаўшы з чым-н., узятым за ўзор. *З. копію з арыгіналам.* ‖ *незак.* **звяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **зве́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.*

**ЗВЕ́СІЦЦА**, зве́шуся, зве́сішся, зве́сіцца; *зак.* **1.** Перагнуўшыся цераз што-н., нахіліцца ўніз. *З. цераз поручні.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Нізка схіліцца, апусціцца. *Галіны звесіліся да зямлі.* ‖ *незак.* **зве́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗВЕ́СІЦЬ**, зве́шу, зве́сіш, зве́сіць; зве́шаны; *зак., што.* Трымаючы ў вісячым стане, апусціць уніз. *Вярба звесіла галіны над вадой. Сядзець, звесіўшы ногі* (не дастаючы да падлогі, зямлі). ‖ *незак.* **зве́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗВЕ́СТКІ**, -так, *адз.* зве́стка, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Даныя, паведамленні пра каго-, што-н. *Атрымаць важныя з. З. аб надвор'і.*

**ЗВЕ́СЦІ**, звяду́, звядзе́ш, звядзе́; звядзём, зведзяце́, звяду́ць; звёў, звяла́, -ло́; звядзі́; зве́дзены; *зак.* **1.** *каго (што).* Ведучы, спусціць зверху ўніз. *З. дзіця з лесвіцы.* **2.** *каго-што.* Перавесці, адвесці на другое месца, убок. *З. карову з дарогі. З. сур'ёзную размову на жарт* (перан.). **3.** *што.* Знішчыць, перавесці; зрасходаваць (звычайна без карысці). *З. тараканаў. З. многа лесу* (высечы). **4.** *што.* Наблізіць адно да другога, ссунуць, злучыць. *З. бровы.* **5.** *каго (што).* Сабраць у адно месца, дапамагчы або прымусіць сустрэцца ці сысціся з кім-н. *З. дзяцей у зал. З. знаёмых.* **6.** *каго-што ў што.* Злучыць у якое-н. новае цэлае. *З. даныя ў табліцу.* **7.** *каго (што).* Нацкаваўшы аднаго на другога, прымусіць пабіцца, пакусацца. *З. сабак. З. спрачальнікаў* (перан.). **8.** *што да чаго* або *на што.* Давесці да чаго-н. нязначнага, малога, нескладанага. *З. выдаткі да мінімуму.* **9.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каго-што.* Сагнуць, сцягнуць, скурчыць. *Сутарга звяла нагу.* ◊ **Звесці са свету** — загубіць, знішчыць. **Звесці ў рожкі** (разм.) — пасварыць каго-н. з кім-н.; стукнуць ілбамі. ‖ *незак.* **зво́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **звядзе́нне**, -я, *н.* (да 1, 2, 4—9 знач.).

**ЗВЕ́СЦІСЯ**, звяду́ся, звядзе́шся, звядзе́цца; звядзёмся, зведзяце́ся, звяду́цца; звёўся, звяла́ся, -ло́ся; звядзі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Перастаць існаваць, зніклнуць. *Тая парода жывёлы ўжо звялася.* **2.** Страціць сілы, пахудзець. *Звёўся чалавек зусім.* **3.** *да чаго* і *на што.* Скараціўшыся, спрасціўшыся, выразіцца ў чым-н. малым, нескладаным. *Справа звялася да дробязей. З. на нішто* (страціць усякі сэнс, усякае значэнне). ‖ *незак.* **зво́дзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца.

**ЗВЕ́ЧАРА**, *прысл.* Вечарам, да надыходу ночы.

**ЗВЕЧАРЭ́ЦЬ** *гл.* вечарэць.

**ЗВЕ́ШВАЦЦА** *гл.* звесіцца.

**ЗВЕ́ШВАЦЬ** *гл.* звесіць.

**ЗВЕ́ЯЦЬ** *гл.* веяць.

**ЗВІ́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Хвалістае скрыўленне, выгін. *З. ракі. Звіліны мозгу.*

**ЗВІ́ЛІСТЫ**, -ая, -ае. Які мае пакручасты выгляд. *Звілістая сцежка.* ‖ *наз.* **зві́лістасць**, -і, *ж.*

**ЗВІЛЬГАТНЕ́ЦЬ** *гл.* вільгатнець.

**ЗВІНЕ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніце́, -ня́ць; -ні́; *незак.* Утвараць металічны гук. *Звініць званок. Звіняць галасы дзяцей. У вушах звініць* (пра звон у вушах). ‖ *зак.* **празвіне́ць**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніце́, -ня́ць; -ні́.

**ЗВІНЮ́ЧЫ**, -ая, -ае (разм.). Звонкі. *З. гук.*

**ЗВІСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Быць апушчаным уніз, знаходзіцца ў вісячым становішчы. *Валасы звісалі на лоб.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вісець няроўна, не аблягаючы плячэй, стану (пра вопратку). *Адзенне звісае з плячэй.* ‖ *зак.* **звіснуць**, -ну, -неш, -не; звіс, -сла; -ні.

**ЗВІ́СЛЫ**, -ая, -ае. Які звіс, апусціўся, абвіслы. *Звіслыя вусы. Звіслае голле.*

**ЗВІХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *вывіх. З. нагі.*

**ЗВІХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няцё́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Зрушыцца ў суставе. *Палец звіхнуўся.* **2.** Страціць розум, звар'яцець (разм.). *Ад такіх перажыванняў можна з.* **3.** Збіцца з правільнага шляху, з правільных пазіцый.

**ЗВІХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што* (разм.). Тое, што і *вывіхнуць. Ён звіхнуў нагу.*

**ЗВІ́ЦЦА**, саўю́ся, саўе́шся, саўе́цца; саўёмся, саўяце́ся, саўю́цца; звіўся, звіла́ся, -ло́ся; звіся; *зак.* Скруціцца ў клубок, кальцо. *Змяя звілася ў клубок.* ‖ *незак.* **зві́вацца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗВІЦЬ** *гл.* віць.

**ЗВОД**[1], -у, *М* -дзе, *м.* (разм.). Выміранне, знікненне каго-, чаго-н. *Здавалася, што ніколі не будзе зводу такім магутным дрэвам.*

**ЗВОД**[2], -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Зведзеныя ў адно цэлае і размешчаныя ў пэўнай паслядоўнасці звесткі, матэрыялы, тэксты. *З. законаў.* **2.** Выпуклае або крывалінейнае перакрыцце, якое злучае сцены, апоры якога-н. збудавання. *Каменны з. Гатычны з.*

**ЗВО́ДДАЛЕКУ**, *прысл.* З далёкай адлегласці. *Назіраць з. З. ад жыллёвых будынкаў.*

**ЗВО́ДДАЛЬ**, *прысл.* Тое, што і *зводдалеку.*

**ЗВО́ДЗІЦЦА** *гл.* звесціся.

**ЗВО́ДЗІЦЬ** *гл.* звесці.

**ЗВО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Дакумент, запіска, у якой зведзены разам якія-н. звесткі, даныя. *Аператыўная з. З. аб ходзе сяўбы. З. надвор'я.*

**ЗВО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (пагард.). Чалавек, які займаецца зводніцтвам. ‖ *ж.* **зво́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЗВО́ДНІЦТВА**, -а, *н.* (пагард.). **1.** Карыслівае пасрэдніцтва паміж мужчынам і жанчынай для садзейнічання ўступленню іх у любоўную сувязь. **2.** Пляткарства, нагаворы або падбухторванне да якіх-н. дрэнных учынкаў. ‖ *прым.* **зво́дніцкі**, -ая, -ае.

**ЗВО́ДНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (пагард.). Займацца зводніцтвам.

**ЗВО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Сабраны з розных месц, састаўлены з чаго-н., з розных частак. *Зводная справаздача. З. аркестр.* **2.** Які даводзіцца каму-н. братам ці сястрой па мачасе або айчыму. *З. брат. Зводныя дзеці.*

**ЗВОЗ** *гл.* звезці.

**ЗВО́ЗІЦЬ** *гл.* звезці.

**ЗВО́ЛЬНІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* Вызваліцца ад выканання якіх-н. абавязкаў, звязаных з вучобай, службай і пад.; канчаткова пакінуць месца работы. *З. з вайсковай службы. З. з працы.* ‖ *незак.* **звальня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **звальне́нне**, -я, *н.*

**ЗВО́ЛЬНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго (што).* Вызваліць ад выканання якіх-н. абавязкаў, звязаных з вучобай, службай і пад.; зняць з работы. *З. у запас. З. з работы.* ‖ *незак.* **звальня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **звальне́нне**, -я, *н.*

**ЗВОН**, зво́на *і* зво́ну, *м.* **1.** -а, *мн.* званы́, -о́ў, *м.* Ударны сігнальны падвясны інструмент (з медзі або меднага сплаву) у форме пустога ўсечанага конуса з падвешаным усярэдзіне ўдарнікам (языком). *Царкоўны з. Пажарны з. Званіць ва ўсе званы* (таксама перан.: расказваць усім пра што-н.). **2.** -у. Гук, які ўтвараецца гэтым інструментам, а таксама металічнымі або шклянымі прадметамі пры ўдары. *З. касы. З. шклянак.* **3.** -у, *перан.* Погаласкі, плёткі. *Нечага было разносіць такі з. па сяле.* ‖ *прым.* **зво́навы**, -ая, -ае.

**ЗВОНКАГАЛО́СЫ**, -ая, -ае. Са звонкім голасам. *Звонкагалосыя дзеці.* ‖ *наз.* **звонкагало́сасць**, -і, *ж.*

**ЗВО́НКІ**[1], -ая, -ае. **1.** Гучны, гулкі. *З. голас. Звонкае шкло. Звонкая манета* (металічныя грошы). **2.** Тое, што і *гулкі* (у 2 знач.). *Звонкае паветра.* ○ **Звонкі зычны** — які вымаўляецца з удзелам голасу. ‖ *наз.* **зво́нкасць**, -і, *ж.*

**ЗВО́НКІ**[2], -аў, *адз.* зво́нка, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Картачная масць, якая абазначаецца чырвонымі ромбікамі. ‖ *прым.* **званко́вы**, -ая, -ае.

**ЗВО́НКУ**, *прысл.* **1.** Са знешняга боку. *Пачысціць акно з.* **2.** Знешне, з выгляду (разм.). *З. спакойны чалавек.*

**ЗВО́СТРЫВАЦЦА** *гл.* звастрыцца.

**ЗВО́СТРЫВАЦЬ** *гл.* звастрыць.

**ЗВУ́ЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -зіцца; *зак.* Стаць вузкім або вузейшым. ‖ *незак.* **звужа́цца**, -а́ецца *і* **зву́жвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **звужэ́нне**, -я, *н. і* **зву́жванне**, -я, *н.*

**ЗВУ́ЗІЦЬ**, звужу, звузіш, звузіць; звужаны; *зак., што.* Зрабіць вузкім (у 1—3 знач.), вузейшым. ‖ *незак.* **звужа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **зву́жваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **звужэ́нне**, -я, *н. і* **зву́жванне**, -я, *н.*

**ЗВЫ́КЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаў прывычкай. *Звыклыя рухі.* **2.** Які звыкся з чым-н., набыў прывычку рабіць што-н. *З. да частых пераездаў.* ‖ *наз.* **звы́класць**, -і, *ж.*

**ЗВЫ́КНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; звыкся, -клася; -ніся; *зак., з кім-чым і без дап.* Прывыкнуць да каго-, чаго-н. *З. з такой думкай.* ‖ *незак.* **звыка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **звыка́нне**, -я, *н.*

**ЗВЫЧАЁВЫ**, -ая, -ае (спец.). Устаноўлены звычаем, а не законам. *Звычаёвае права.*

**ЗВЫЧА́Й**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Агульнапрыняты парадак, правілы, што даўно ўкараніліся ў быце народа або ў пэўнай грамадскай групе. *Спрадвечны з. Гарадскія звычаі.* **2.** Прывычны спосаб дзеяння, прывычка. *Маю з. пасля абеду пашпацыраваць.*

**ЗВЫЧА́ЙНА**, *прысл.* Часцей за ўсё, пастаянна, па ўсталяванай звычцы. *Як з. Такія вечары з. праходзяць весела.*

**ЗВЫЧА́ЙНЫ**, -ая, -ае. Пастаянны, прывычны. *Звычайная з'ява. З. працоўны дзень.* ‖ *наз.* **звыча́йнасць**, -і, *ж.*

**ЗВЫ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Павадка, прывычка. *Ведаць звычкі звера.* **2.** Звычай, традыцыя (разм.). *Мясцовая з.*

**ЗВЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Добра знаёмы, прывычны. *З. занятак.* **2.** Тое, што і *звыклы* (у 2 знач.). ‖ *наз.* **звы́чнасць**, -і, *ж.*

**ЗВЫШ**, *прыназ. з Р.* Ужыв. пры абазначэнні перавышэння якой-н. меры. *З. плана. З. ста чалавек.*

**ЗВЫШ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае перавышэнне якой-н. меры, мяжы, самую высокую ступень чаго-н., напр.: *звышкамплектны, звышметкі, звыштрывалы.*

**ЗВЫШГУКАВЫ́**, -а́я, -о́е. Які перавышае скорасць гуку. *Звышгукавая скорасць. З. самалёт.*

**ЗВЫШНАТУРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** У містычным уяўленні: які не тлумачыцца натуральным чынам; дзівосны. *Звышнатуральныя сілы.* **2.** Які перавышае звычайную меру чаго-н.; незвычайны (разм.). *Звышнатуральная хуткасць.* ‖ *наз.* **звышнатура́льнасць**, -і, *ж.*

**ЗВЫШНО́ВЫ**, -ая, -ае. У выразе: **звышновая зорка** (спец.) — зорка, якая дае раптоўную ўспышку з надзвычай яркім бляскам.

**ЗВЫШПЛА́НАВЫ**, -ая, -ае. Зроблены, выраблены звыш плана. *Звышпланавыя пастаўкі.*

**ЗВЫШПРЫБЫ́ТАК**, -тку, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Прыбытак, які перавышае сярэдні прыбытак. *З. манаполіі.*

**ЗВЫШТЭРМІНО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прадаўжаецца звыш вызначанага тэрміну. *Звыштэрміновая служба.* **2.** *у знач. наз.* **звыштэрміно́вы**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Той, хто добраахвотна застаўся на вайсковай службе пасля адбыцця абавязковага тэрміну.

**ЗВЫШУРО́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які праводзіцца звыш устаноўленага рабочага часу. *Звышурочная работа.* **2.** *у знач. наз.* **звышуро́чныя**, -ых. Плата за звышурочную работу. *Атрымаць звышурочныя.*

**ЗВЫШЧАЛАВЕ́К**, -а, *мн.* звышчалаве́кі, -аў, *м.* У некаторых філасофскіх вучэннях: моцная асоба, чые воля, жаданні і ўчынкі не падпарадкоўваюцца ніякім абмежаванням.

**ЗВЯ́ГА**, -і, *ДМ* звя́зе, *ж.* (разм.). **1.** Надакучлівы брэх (сабакі). *Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць* (прыказка). **2.** Назойлівае прыставанне з просьбамі, напамінамі, патрабаваннямі.

**ЗВЯ́ГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Надакучліва гаўкаць (пра сабаку). **2.** Назойліва прасіць, напамінаць, патрабаваць.

**ЗВЯГЛІ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Вісклівы (пра сабаку). **2.** Які дакучае назойлівымі просьбамі, напамінаннямі, патрабаваннямі. ‖ *наз.* **звяглі́васць**, -і, *ж.*

**ЗВЯДЗЕ́ННЕ** *гл.* звесці.

**ЗВЯ́ЗАК**, -зка, *мн.* -зкі, -зкаў, *м.* Тое, што і *звязка* (у 1 знач.). *З. ключоў.*

**ЗВЯ́ЗАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пазбаўлены свабоды, лёгкасці. *Звязаныя рухі.* **2.** Такі, праяўленне якога абумоўлена чым-н. (спец.). *Звязаныя хістанні.* ‖ *наз.* **звя́занасць**, -і, *ж.*

**ЗВЯЗА́ЦЦА**, звяжу́ся, звя́жашся, звя́жацца; звяжы́ся; *зак.* **1.** *з кім-чым.* Устанавіць сувязь, зносіны з кім-, чым-н. *З. па тэлефоне.* **2.** *з кім-чым.* Устанавіць якія-н. (пераважна заганныя) адносіны з кім-н. *З. з нягоднікам.* **3.** *з чым.* Узяцца за што-н. (цяжкае або заганнае). *З. з непасільнай працай.* ‖ *незак.* **звя́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца. *Не трэба з забіякамі з.*

**ЗВЯЗА́ЦЬ**, звяжу́, звя́жаш, звя́жа; звяжы́; звя́заны; *зак.* **1.** *гл.* вязаць. **2.** *што.* Завязваючы, злучыць адно з адным. *З. канцы вяровак. З. платы. З. сноп. Двух слоў не звяжа* (перан.: дрэнна перадае свае думкі). **3.** *каго-што.* Злучыць, устанавіць сувязь, зносіны, блізкасць, агульнасць паміж кім-, чым-н. *З. партызан з падполлем. З. свой лёс з кім-н. Сябры звязаны на ўсё жыццё. З. вёску тэлефоннай сувяззю з райцэнтрам.* **4.** толькі *дзеепрым. зал. прош., з чым.* Пра дзеянне, якое цягне за сабой што-н., звязана з чым-н. *Паездка звязана са значнымі расходамі.* **5.** толькі *дзеепрым. зал. прош., з кім-чым.* Пра тое, што з'яўляецца блізкім каму-, чаму-н., непасрэдна адносіцца да каго-, чаго-н. *Беражом усё, што звязана з яго памяццю. Асабістыя інтарэсы звязаны з грамадскімі.* **6.** *што з чым.* Устанавіць, адкрыць сувязі, залежнасць паміж чым-н. *З. адну з'яву з другой.* **7.** *каго-што.* Пазбавіць свабоды дзеянняў, дзейнасці, абмежаваць чым-н. *З. каго-н. па руках і нагах* (пазбавіць свабоды ўчынкаў). *З. ініцыятыву мас. З. сябе абяцаннем.* **8.** *што.* Змацаваць вяжучым рэчывам ці пры дапамозе рубкі (спец.). *З. гальку вапнай. З. кроквы.* ‖ *незак.* **звя́зваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2, 3, 6—8 знач.).

**ЗВЯ́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* **1.** Некалькі аднародных прадметаў, звязаных разам. *З. ключоў. З. кніг.* **2.** Сухажылле, якое змацоўвае асобныя часткі шкілета, асобныя органы цела. *Расцяжэнне звязак. Галасавыя звязкі.* **3.** У граматыцы: дапаможнае слова, якое ўтварае частку выказніка. ‖ *прым.* **звя́зачны**, -ая, -ае (да 3 знач.) *і* **звя́зкавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ЗВЯ́ЗНЫ**, -ая, -ае. Добра і паслядоўна выказаны, лагічна стройны. *Звязнае выступленне. Адказаць звязна* (прысл.). ‖ *наз.* **звя́знасць**, -і, *ж.*

**ЗВЯ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які звяў, завялы. *Звялыя кветкі.*

**ЗВЯНО́**, -а́, *мн.* звёны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) звяны́, звёнаў, *н.* **1.** Кольца, якое з'яўляецца састаўной часткай ланцуга. **2.** *перан.* Састаўная частка чаго-н., якога-н. цэлага. *Асноўнае з. вытворчасці.* **3.** Невялікая арганізацыйная ячэйка або воінскае падраздзяленне. *Піянерскае з. Паляводчае з. З. самалётаў.* ‖ *прым.* **звенняві́**, -а́я, -о́е (да 3 знач.).

**ЗВЯ́НУЦЬ** *гл.* вянуць.

**ЗВЯНЧА́ЦЦА** *гл.* вянчацца.

**ЗВЯНЧА́ЦЬ** *гл.* вянчаць.

**ЗВЯРА́ЦЦА** *гл.* зверыцца.

**ЗВЯРА́ЦЬ** *гл.* зверыць.

**ЗВЯРГА́ЦЬ** *гл.* звергнуць.

**ЗВЯР'Ё** *гл.* звер.

**ЗВЯРЖЭ́ННЕ** *гл.* звергнуць.

**ЗВЯРЗЦІ́** *гл.* вярзці.

**ЗВЯРЗЦІ́СЯ** *гл.* вярзціся.

**ЗВЯРНУ́ЦЦА**, звярну́ся, звéрнешся, звéрнецца; звярні́ся; *зак.* **1.** З'ездзіць, схадзіць туды і назад. *Вазакі звярнуліся за дзень па тры разы.* **2.** *да чаго.* Накіраваць сваю дзейнасць на што-н., узяцца за што-н. або накіраваць паўторна сваю ўвагу на каго-, што-н. *З. да вывучэння старажытных помнікаў. З. да перапыненай гутаркі.* **3.** Накіравацца да каго-н. з просьбай, па дапамогу і пад. або адрасавацца да каго-н. з якімі-н. словамі, з прамовай. *З. да ўрача. З. з прапановай да старшыні.* ‖ *незак.* **звярта́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (да 2 і 3 знач.), **зваро́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 2 і 3 знач.) *і* **звара́чацца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (разм.).

**ЗВЯРНУ́ЦЬ**, звярну́, звéрнеш, звéрне; звярні́; звéрнуты; *зак.* **1.** Памяняць напрамак руху. *З. у завулак. З. гутарку ўбок* (перан.). **2.** *каго-што.* Накіраваць у які-н. бок ад дарогі (каня, машыну і пад.). *З. машыну з дарогі.* **3.** *каго-што.* Варочаючы, зрушыць з месца (разм.). *З. вялікі камень. Горы з.* (перан.: зрабіць вельмі многа). **4.** *што.* Пералажыць, зваліць (віну, правіннасць і пад.) на другога (разм.). *З. усё на невінаватага.* **5.** *што.* Схіліць, павярнуць набок, убок (разм.). *З. галаву набок.* **6.** *што.* Неакуратна скідаць, зваліць у адно месца многія прадметы (разм.). *З. усё ў кучу.* ◊ **Звярнуць на сябе ўвагу** — вызначыцца чым-н., зацікавіць сабой. **Звярнуць увагу** *каго на каго-што* — паказаць каму-н. на каго-, што-н., прымусіць заўважыць. **Звярнуць увагу** *на каго-што* — заўважыць каго-, што-н., зацікавіцца кім-, чым-н., улічыць што-н. ‖ *незак.* **звярта́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 5 знач.), **зваро́чваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—4 і 6 знач.) *і* **звара́чаць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—5 знач.).

**ЗВЯРО́К** *гл.* звер.

**ЗВЯРСТА́ЦЬ** *гл.* вярстаць.

**ЗВЯРУ́ГА**, -і, *М* -ру́зе, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). **1.** Вялікі страшны звер. **2.** Тое, што і *звер* (у 2 знач.).

**ЗВЯРЫ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Вялікі звер; звяруга.

**ЗВЯРЫ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Прыстасаванае месца, дзе трымаюць звяроў для паказу. *Перасоўны з.*

**ЗВЯРЫ́НЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* звер. **2.** *перан.* Вельмі моцны (пра што-н. цяжкае або жорсткае, лютае). *Звярыная нянавісць.*

**ЗВЯРЭ́ДЗІЦЬ** *гл.* вярэдзіць.

**ЗВЯРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* Даходзіць да шаленства, станавіцца зверам (у 2 знач.). *З набліжэннем нашых войск акупанты звярэлі.* ‖ *зак.* **азвярэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *наз.* **азвярэ́нне**, -я, *н.*

**ЗГАБЛЯВА́ЦЬ**, -люю, -люеш, -люе; -лю́й; -ляваны; *зак., што.* Габлюючы, зняць, счысціць. *З. няроўнасці.* ‖ *незак.* **зграблёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗГАВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -во́рышся, -во́рыцца; *зак., з кім.* **1.** Дамовіцца адносна якіх-н. дзеянняў. *З. пайсці ў ягады.* **2.** Дасягнуць узаемнага разумення, пагаднення ў размове. *З табой не згаворышся.* ‖ *незак.* **згаво́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗГАВО́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Узаемная дамоўленасць, узаемнае пагадненне. *Усе сабраліся на мітынг без згавору.*

**ЗГАВО́РЛІВЫ**, -ая, -ае. Такі, з якім лёгка згаварыцца (у 2 знач.). *З. чалавек.* ‖ *наз.* **згаво́рлівасць**, -і, *ж.*

**ЗГАДЗІ́ЦЦА**[1], згаджу́ся, зго́дзішся, зго́дзіцца; *зак.* **1.** *на што* і *з інф.* Даць згоду (у 1 знач.) на што-н. *З. ехаць у камандзіроўку.* **2.** *з кім-чым.* Выказаць, пацвердзіць сваю згоду (у 2 знач.) з кім-, чым-н. *З. з думкай таварыша.* ‖ *незак.* **згаджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗГАДЗІ́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., зго́дзіцца; *зак.* Аказацца прыгодным, спатрэбіцца. *Што ў лесе родзіцца, тое ў хаце згодзіцца* (з нар.).

**ЗГАЛАДА́ЛЫ**, -ая, -ае. Які доўга цярпеў голад, знясілены ад працяглага галадання. *Згаладалыя людзі.*

**ЗГАЛАДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Нацярпецца голаду. *З. за дарогу. З. па добрай кнізе.*

**ЗГАЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Голы, апусцелы (пра дрэвы, палі і пад.). *Згалелыя нівы.* **2.** *перан.* Збяднелы. *З. шляхцюк.* ‖ *наз.* **згале́ласць**, -і, *ж.*

**ЗГАЛІ́ЦЬ**, згалю́, зго́ліш, зго́ліць; зго́лены; *зак.* Зрэзаць брытвай. *З. вусы.* ‖ *незак.* **зго́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗГА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што* (разм.). Даць ганьбу каму-, чаму-н. *Суседка зганіла маю пакупку.*

**ЗГАНЬБАВА́ЦЬ** *гл.* ганьбаваць.

**ЗГА́НЬБІЦЬ** *гл.* ганьбіць.

**ЗГАНЯ́ЦЬ**[1] *гл.* сагнаць.

**ЗГАНЯ́ЦЬ**[2], -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., каго (што)* (разм.). Гонячы, прымусіць пабыць дзе-н. і вярнуцца назад. *З. коней на вадапой. З. машыну ў горад.*

**ЗГАРБА́ЦІЦЦА** *гл.* гарбаціцца.

**ЗГАРБА́ЦІЦЬ** *гл.* гарбаціць.

**ЗГАРНУ́ЦЦА**, згарну́ся, згóрнешся, згóрнецца; згарні́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Скруціцца трубкай. *Ватман згарнуўся ў скрутак.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Загнуўшыся з краёў, закрыцца (пра пялёсткі, лісце). **3.** Легчы, сагнуўшыся, скруціцца. *З. пад дрэвам і заснуць.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Скараціцца, зменшыцца. *Прадпрыемства згарнулася.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра вадкасць: загусцець, утварыўшы камячкі. *Кроў згарнулася.* ‖ *незак.* **згóртвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗГАРНУ́ЦЬ**, згарну́, згóрнеш, згóрне; згарні́; згóрнуты; *зак., што.* **1.** Скруціць, загінаючы краі; зрабіць скручваннем або загарнуць, закрыць. *Жанчына згарнула хустку. З. газету.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра расліны: закрыць, сціснуць (пялёсткі, лісце). **3.** Зграбаючы, сабраць у адно месца (што-н. сыпкае). *З. збожжа ў кучу.* **4.** *перан.* Скараціць, зменшыць. *З. вытворчасць.* ‖ *незак.* **згóртваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **згóртванне**, -я, *н.*

**ЗГАРЧЭ́ЦЬ** *гл.* гарчэць.

**ЗГАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які згарэў, спалены. *Згарэлая салома.*

**ЗГАРЭ́ЦЬ** *гл.* гарэць.

**ЗГАСА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áе; *незак.* Тое, што і *гаснуць. Агонь згасае. Сілы згасаюць* (перан.).

**ЗГА́СЛЫ**, -ая, -ае. Які згас; пагаслы. *Згаслае вогнішча.*

**ЗГА́СНУЦЬ** *гл.* гаснуць.

**ЗГАТАВА́ЦЦА** *гл.* гатавацца.

**ЗГАТАВА́ЦЬ** *гл.* гатаваць.

**ЗГВАЛТАВА́ЦЬ** *гл.* гвалтаваць.

**ЗГВА́ЛЦІЦЬ** *гл.* гвалціць.

**ЗГІБ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дугападобнае скрыўленне. *З. ракі.* **2.** Месца, па якім што-н. сагнута або згібаецца. *Лакцявы з.*

**ЗГІНА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* Тое, што і *гнуцца.*

**ЗГІНА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак., каго-што.* Тое, што і *гнуць* (у 1 і 2 знач.).

**ЗГІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; згінь; *зак.* Знікнуць, прапасці. *Згінь з маіх вачэй!*

**ЗГЛА́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* **1.** Выраўнавацца, знікнуць пасля разгладжвання. *Няроўнасць згладзілася.* **2.** *перан.* Стаць менш прыметным, змякчыцца. *Першае ўражанне згладзілася.* ‖ *незак.* **зглáджвацца**, -аецца.

**ЗГЛА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* **1.** Выраўнаваць, знікнуць, разгладжваючы, раўнуючы. *З. няроўнасці. З. шурпатасць.* **2.** *перан.* Зрабіць менш прыметным, змякчыць. *З. супярэчнасці.* ◊ **Згладзіць вострыя вуглы** (кніжн.) — змякчыць вастрыню супярэчнасцей. ‖ *незак.* **зглáджваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗГЛЕ́ДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *зак., каго-што* (разм.). Угледзець, убачыць; заўважыць. *Я і не згледзеў, як сцямнела.* ◊ **Як вокам згледзець** — як вокам ахапіць.

**ЗГЛУМІ́ЦЦА** *гл.* глуміцца.

**ЗГЛУМІ́ЦЬ** *гл.* глуміць.

**ЗГНАІ́ЦЬ** *гл.* гнаіць.

**ЗГНІВА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* Гнісці, падвяргацца гніенню.

**ЗГНІ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які згніў. *Згнілае дрэва.*

**ЗГНІ́СЦІ** *гл.* гнісці.

**ЗГНІЦЬ** *гл.* гнісці.

**ЗГО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** Станоўчы адказ, дазвол на што-н. *Даць згоду на што-н. З чыёй-н. згоды. Маўчанне — знак згоды* (прыказка). **2.** Аднадумнасць, агульнасць пунктаў гледжання. *Прыйсці да згоды.* **3.** Сяброўскія адносіны, аднадушнасць. *Жыць у згодзе.* **4.** *безас., у знач. вык.* Дамовіліся, пярэчанняў няма. *Ну, што, з.? Едзем разам?* ◊ **У згодзе** *з чым* (кніжн.) — тое, што і ў адпаведнасці з чым-н. *Дзейнічаць у згодзе з прынятым рашэннем.*

**ЗГО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (пагард.). Той, хто праводзіць згодніцкую палітыку з кім-н. ‖ *прым.* **зго́дніцкі**, -ая, -ае.

**ЗГО́ДНІЦТВА**, -а, *н.* (пагард.). Дзейнасць, палітыка згодніка.

**ЗГО́ДНЫ**, -ая, -ае; -дзен, -дна. **1.** *на што.* Які выражае, дае згоду на што-н. *З. на ўсе ўмовы.* **2.** *з кім-чым.* Які прытрымліваецца з кім-н. адной думкі, адных поглядаў. *Я з ім не згодзен.* **3.** Які супадае з чым-н., падобны. *Сведкі далі згодныя паказанні.* **4.** Дружны, аднадушны. *Згоднае жыццё. Жылі яны згодна* (прысл.). **5.** Стройны, гарманічны. *Згодныя спевы.* ◊ **Згодна з** *чым, прыназ. з Т* — у адпаведнасці з чым-н. *Згодна з законам.* ‖ *наз.* **зго́днасць**, -і, *ж.* (да 4 і 5 знач.).

**ЗГО́ЛЬВАЦЬ** *гл.* згаліць.

**ЗГОН** *гл.* сагнаць.

**ЗГО́НКА** *гл.* сагнаць.

**ЗГО́РБІЦЦА** *гл.* горбіцца.

**ЗГО́РБІЦЬ** *гл.* горбіць.

**ЗГО́РКЛЫ**, -ая, -ае. Які згорк, прагорклы. *З. тварог.*

**ЗГО́РКНУЦЬ** *гл.* горкнуць.

**ЗГО́РТВАННЕ** *гл.* згарнуць.

**ЗГО́РТВАЦЦА** *гл.* згарнуцца.

**ЗГО́РТВАЦЬ** *гл.* згарнуць.

**ЗГРАБА́ЦЬ** *гл.* згрэбці.

**ЗГРА́БНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прыгожа і правільна складзены, добрага целаскладу. *Зграбная дзяўчына.* **2.** Грацыёзны ў рухах. *Зграбная паходка.* ‖ *наз.* **згра́бнасць**, -і, *ж.*

**ЗГРА́Я**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* (разм.). **1.** Гайня сабак, ваўкоў і пад. **2.** *перан.* Банда, шайка (пагард.). *Зладзейская з.*

**ЗГРУВА́СЦІЦЬ** *гл.* грувасціць.

**ЗГРУ́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзіцца; *зак.* (разм.). Сабрацца гуртам; стоўпіцца. *З. каля стала.* ‖ *незак.* **згру́джвацца**, -аецца.

**ЗГРУ́ДЗІЦЬ**, -ўджу, -ўдзіш, -ўдзіць; -ўджаны; *зак., што* (разм.). Сабраць, скідаць у кучу. *З. кнігі ў шафу.* ‖ *незак.* **згру́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗГРУЗІ́ЦЬ**, -ужу́, -ўзіш, -ўзіць; -ўжаны; *зак., што.* Зняць які-н. груз з чаго-н. *З. мяхі з бульбай з воза.* ‖ *незак.* **згружа́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ЗГРУПАВА́ЦЦА** *гл.* групавацца.

**ЗГРУПАВА́ЦЬ** *гл.* групаваць.

**ЗГРЫЗО́ТА**, -ы, *ДМ* -зóце, *ж.* (разм.). **1.** Спрэчкі, звадкі, грызня. **2.** Душэўныя мукі, перажыванні, смутак.

**ЗГРЫ́ЗЦІ**, -зу́, -зéш, -зé; -зём, -зяцé, -зу́ць; згры́з, -зла; згры́зены; *зак.* **1.** *што.* З'есці грызучы. *З. сухар.* **2.** *што.* Сапсаваць грызучы. *З. аловак.* **3.** *перан., каго (што).* Змучыць (пра гора, сумненне і пад.). ‖ *незак.* **згрыза́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ЗГРЭ́БЦІ**, зграбу́, зграбéш, зграбé; зграбём, зграбяцé, зграбу́ць; згроб, згрэ́бла; зграбі́; згрэ́бены; *зак.* **1.** *што.* Грабучы, сабраць у адно месца (што-н. сыпкае, рассыпістае). *З. сена. З. вугалле ў кучу.* **2.** *што.* Грабучы, скінуць. *З. снег з даху.* **3.** *каго-што.* Хуткім махам, рухам узяць што-н. або з сілай схапіць, абхапіць каго-н. (разм.). *З. ў ахапак.* ‖ *незак.* **зграба́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ЗГУ́БА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (разм.). **1.** Смерць, гібель, знішчэнне. *Берагчы лес ад згубы.* **2.** Тое, што з'яўляецца прычынай гібелі ці няшчасця для каго-, чаго-н. *Марозы — з. для кветак.* **3.** Тое, што згублена, страчана. *Знайсці сваю згубу.*

**ЗГУБІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Той, хто губіць, загубіў каго-, што-н. *Жукі-караеды — згубіцелі лесу.* ‖ *ж.* **згубіцелька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек. ‖ *прым.* **згубіцельскі**, -ая, -ае.

**ЗГУБІ́ЦЦА** *гл.* губляцца.

**ЗГУБІ́ЦЬ** *гл.* губляць.

**ЗГУ́БНЫ**, -ая, -ае. Які вядзе да згубы, пагібельны. *З. агонь артылерыі.* ‖ *наз.* **згу́бнасць**, -і, *ж.*

**ЗГУЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* Дасягнуць зладжаных дзеянняў у сумеснай гульні. *Футбольная каманда згулялася.* ‖ *незак.* **згу́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗГУЛЯ́ЦЬ** *гл.* гуляць.

**ЗГУРТАВА́НЫ**, -ая, -ае. Дружны, аднадушны, арганізаваны. *З. калектыў.* ‖ *наз.* **згуртава́насць**, -і, *ж.*

**ЗГУРТАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ту́ецца; *зак.* **1.** Сабрацца ў гурт. *Каля дрэва згуртавалася цэлая грамада людзей.* **2.** *перан.* Дасягнуць аднадушнасці ў поглядах, дзеяннях. *З. вакол думкі вучоных.* ‖ *незак.* **згурто́ўвацца**, -аецца; *наз.* **згурто́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **згуртава́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ЗГУРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* **1.** *каго.* Аб'яднаць, наблізіўшы аднаго да другога. *З. жывёлу.* **2.** *перан., каго (што).* Дабіўшыся адзінства, згуртаванасці, аб'яднаць. *З. брыгаду.* ‖ *незак.* **згурто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **згуртава́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ЗГУ́СНУЦЬ**, -сне; згус, -сла; *зак.* (разм.). Згусціцца, загусцець. *Кісель згус.*

**ЗГУ́СТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Камячок, які ўтварыўся пры загусценні вадкасці. *З. крыві. З. энергіі* (перан.: пра вельмі энергічнага чалавека). ‖ *прым.* **згу́сткавы**, -ая, -ае.

**ЗГУСЦІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -сціцца; *зак.* Стаць густым ці больш густым. *Цес-*

*та згусцілася. Хмары згусціліся.* ‖ *незак.* **згушча́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **згушчэ́нне**, -я, *н.*

**ЗГУСЦІ́ЦЬ**, згушчу́, згу́сціш, згу́сціць; згу́шчаны; *зак., што.* Зрабіць густым або больш густым. *З. малако. З. фарбы* (перан.: у вусным апавяданні, адлюстраванні перабольшыць што-н. дрэннае, змрочнае і пад.). ‖ *незак.* **згушча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **згушчэ́нне**, -я, *н.*

**ЗДАБЫВА́ЦЬ** *гл.* здабыць.

**ЗДАБЫ́ТАК**, -тку, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Маёмасць, уласнасць; тое, што непадзельна стала чым-н. набыткам. *Сялянскія здабыткі. Творчасць Янкі Купалы стала здабыткам сусветнай культуры.* **2.** Дасягненні ў развіцці чаго-н. *Мастацкія здабыткі.* **3.** Здабытая рэч, прадмет і пад. *Паляўнічы з.* **4.** Вынік множання.

**ЗДАБЫ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто займаецца здабычай чаго-н. *З. нафты.* **2.** Чалавек, які здабывае сродкі на жыццё (разм.). ‖ *ж.* **здабы́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **здабы́тчыцкі**, -ая, -ае.

**ЗДАБЫ́ЦЬ**, -бу́ду, -бу́дзеш, -бу́дзе; -бу́дзь; -бы́ты; *зак., што.* **1.** Дастаць, набыць. *З. цяслярны інструмент. З. каштоўныя звесткі.* **2.** Дастаць з нетраў зямлі. *З. каменны вугаль. З. нафту.* **3.** *перан.* Дабіцца чаго-н. шляхам барацьбы, настойлівасці, працы і пад. *З. славу. З. перамогу ў баях.* ◊ **Здабыць корань** — у матэматыцы: выканаць дзеянне, адваротнае ўзвядзенню ў ступень. *З. корань з ліку.* ‖ *незак.* **здабыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **здабы́ча**, -ы, *ж. Адправіцца на здабычу* (на паляванне, на промысел).

**ЗДАБЫ́ЧА**, -ы, *ж.* **1.** *гл.* здабыць. **2.** Тое, што здабыта, набыта.

**ЗДАБЫ́ЧЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Удачлівы ў здабычы. *З. рыбалоў.* ‖ *наз.* **здабы́члівасць**, -і, *ж.*

**ЗДАВАЛЬНЕ́ННЕ**, -я, *н.* Тое, што і *задавальненне.*

**ЗДАВАЛЬНЯ́ЦЦА** *гл.* здаволіцца.

**ЗДАВАЛЬНЯ́ЦЬ** *гл.* здаволіць.

**ЗДАВАЛЬНЯ́ЮЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Даволі добры, які задавальняе пэўныя запатрабаванні. *З. адказ. Работа выканана здавальняюча* (прысл.). **2.** *у знач. наз.* **здавальня́юча**, *нескл., н.* Адзнака, якая абазначае самую нізкую станоўчую ацэнку ведаў. *Здаць экзамен на здавальняюча.*

**ЗДАВА́ЦЦА**[1] *гл.* здацца[1].

**ЗДАВА́ЦЦА**[2], здаюся, здае́шся, здае́цца; здаёмся, здаяце́ся, здаю́цца; *незак.* **1.** *гл.* здацца[2]. **2.** *у знач. пабочн. сл.* **здае́цца, здава́лася.** Як быццам, нібыта, відаць. *Здаецца, Вас, калега, можна павіншаваць. Гэтаму дажджу, здавалася, не будзе канца.*

**ЗДАВА́ЦЬ** *гл.* здаць.

**ЗДАВО́ЛЕНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *задаволены.* ‖ *наз.* **здаво́ленасць**, -і, *ж.*

**ЗДАВО́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак., чым* (разм.). Тое, што і *задаволіцца.* ‖ *незак.* **здавальня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца *і* **здаво́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗДАВО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; здаво́ль; -лены; *зак.* (разм.). Тое, што і *задаволіць.* ‖ *незак.* **здавальня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **здаво́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗДАГАДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Зразумець, прыйсці да правільнай думкі. ‖ *незак.* **здага́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗДАГА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Меркаванне, заснаванае на верагоднасці, магчымасці чаго-н. *Ваша з. правільная: так і было.* **2.** Кемлівасць, здольнасць улоўліваць сутнасць справы (разм.). *У гэтай справе патрэбна з.*

**ЗДАГА́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Кемлівы, які лёгка знаходзіць правільнае рашэнне. *Здагадлівае дзіця.* ‖ *наз.* **здага́длівасць**, -і, *ж.*

**ЗДАЛЁК** *і* **ЗДАЛЁКУ**, *прысл.* З далёкай адлегласці ці з аддаленага месца, далёкай мясцовасці. *Вёска відаць з. Пачаць размову з.* (перан.: не прыступаючы адразу да сутнасці справы).

**ЗДАНЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Вобраз каго-, чаго-н., які ўзнікае ва ўяўленні; прывід; тое, што здаецца. *Начныя здані. Перажытае чаргавалася з нейкімі зданямі.*

**ЗДАРАВЕ́ННЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Высокага росту і моцнага целаскладу. *З. мужчына.* **2.** Вельмі вялікі, велізарны (пра рэчы, прадметы). *Здаравеннае палена.*

**ЗДАРАВЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Станавіцца здаравейшым. ‖ *зак.* **паздараве́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**ЗДАРАВІ́ЛА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -ві́л (разм.). Тое, што і *здаравяка.*

**ЗДАРАВЯ́КА**, -і, *мн.* -і, -аў, *м. і* **ЗДАРАВЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Чалавек моцнага целаскладу і вялікай фізічнай сілы. ‖ *ж.* **здаравя́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ЗДАРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае добрае здароўе, не хворы. *Здаровае дзіця. З. арганізм.* **2.** Які выражае здароўе, уласцівы здароваму чалавеку. *З. выгляд. З. смех.* **3.** Карысны для здароўя. *Здаровае надвор'е. Здаровае харчаванне.* **4.** *перан.* Карысны, правільны. *Здаровая ідэя. З. быт.* **5.** Моцнага целаскладу, дужы (разм.). *З. хлопец.* **6.** Вялікі, моцны (пра з'явы, прадметы; разм.). *З. мароз. З. кавалак жалеза.* **7.** *у знач выкл.* **здаро́ў (здаро́ва)!** Ужыв. як прывітанне пры сустрэчы (разм.). ◊ **Будзь (або бывай) здароў** — развітальнае пажаданне заставацца здаровым.

**ЗДАРО́ЖАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Стомлены, змучаны дарогай, у дарозе. *З. конь.* **2.** Які выражае стомленасць дарогай. *З. выгляд.* ‖ *наз.* **здаро́жанасць**, -і, *ж.*

**ЗДАРО́ЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *зак.* Старміцца, змучыцца ў дарозе. ‖ *незак.* **здаро́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗДАРО́ЎЕ**, -я, *н.* **1.** Правільная, нармальная дзейнасць арганізма. *Берагчы з. Адбіцца на здароўі. Стан здароўя.* **2.** Той або іншы стан арганізма. *Моцнае, слабае з. Як з.? За ваша з.* (зварот да таго, за каго паднімаюць тост). *На з.* (выраз добрага пажадання ў знач. калі ласка). ‖ *памянш.-ласк.* **здаро́ўечка**, -а, *н. Добрага Вам здароўечка* (пажаданне пры развітанні або прывітанне пры сустрэчы).

**ЗДАРО́ЎКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Вітаць адзін аднаго пры сустрэчы. *З. за руку.* ‖ *зак.* **паздаро́ўкацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **здаро́ўканне**, -я, *н.*

**ЗДА́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* **1.** Адбыцца, стацца. *Што здарылася?* **2.** *безас., з інф.* Выпасці на чыю-н. долю. *Здарылася заначаваць аднойчы ў лесе.* **3.** Нечакана з'явіцца, трапіцца (разм.). *Здарылася падарожная машына.* ‖ *незак.* **здара́цца**, -а́ецца.

**ЗДАРЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Нечаканы выпадак у жыцці. *Цікавае з.* **2.** Якая-н. незвычайная падзея. *Вулічнае з.*

**ЗДА́ТАЧНЫ**, -ая, -ае (афіц.). Такі, дзе і на якім праводзіцца здача, перадача чаго-н. *З. пункт. Здатачная квітанцыя.*

**ЗДА́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны на што-н., схільны да чаго-н., умелы. *З. да навукі. Паказаць, хто на што з.* **2.** Зручны, прыгодны для чаго-н. *Месца для начлегу выбралі здатнае.* ‖ *наз.* **зда́тнасць**, -і, *ж.*

**ЗДА́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (афіц.). Асоба, якая ажыццяўляе здачу прадукцыі, маёмасці. *З. збожжа. З. рэчаў на камісію.* ‖ *ж.* **зда́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЗДАЎМЕ́ЦЦА**, -е́юся, -е́ешся, -е́ецца; *зак.* (разм.). Дадумацца да чаго-н., здагадацца пра што-н. *З., у чым справа.*

**ЗДАЎНА́**, *прысл.* З даўніх часоў. *Так тут з. вядзецца.*

**ЗДА́ЦЦА**[1], зда́мся, здасі́ся, зда́сца; здадзі́мся, здасце́ся, здаду́цца; зда́ўся, здала́ся, -ло́ся; зда́йся; *зак.* **1.** Спыніўшы супраціўленне, прызнаць сябе пераможаным. *З. ў палон.* **2.** Аслабець, страціць сілы. *Апошні год ён зусім здаўся.* **3.** Даверыцца каму-, чаму-н., паспадзявацца на каго-, што-н. *Я на вас здаўся, а вы тут вось што робіце.* ‖ *незак.* **здава́цца**, здаюся, здае́шся, здае́цца; здаёмся, здаяце́ся, здаю́цца; здава́йся. ‖ *наз.* **зда́ча**, -ы, *ж.* (да 1 знач.).

**ЗДА́ЦЦА**[2], зда́мся, здасі́ся, зда́сца; здадзі́мся, здасце́ся, здаду́цца; зда́ўся, здала́ся, -ло́ся; зда́йся; *зак.* **1.** Паказацца ў якім-н. выглядзе. *Ён нам здаўся не такім, як быў.* **2.** *безас., каму.* Узнікнуць у думках, адчуваннях, уявіцца. *Ці хто стукнуў у дзверы, ці мне здалося?* ‖ *незак.* **здава́цца**, здаюся, здае́шся, здае́цца; здаёмся, здаяце́ся, здаю́цца.

**ЗДА́ЦЦА**[3], буд. не ўжыв.; зда́ўся, здала́ся, -ло́ся; *зак., каму* (разм.). Спатрэбіцца. *Нашто я там каму здаўся?*

**ЗДАЦЬ**, здам, здасі́, здасць; здадзі́м, здасце́, здаду́ць; зда́ў, здала́, -ло́; здай; зда́дзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Перадаць каму-н. (пра наяўнае, выкананае, даручанае). *З. рэчы ў багаж. З. дакументы ў архіў. З. дзяжурства. З. хлеб дзяржаве. З. манаграфію ў друк. З. затрыманага ў міліцыю.*

2. *што.* Аддаць у наём. *З. пакой кватарантам. З. зямлю ў арэнду.* **3.** *што.* Уступіць, аддаць непрыяцелю (у выніку няўдачнага бою ці без бою). *З. горад. З. пазіцыі* (таксама перан.). **4.** *што.* Аслабіць, зменшыць, не справіўшыся. *З. тэмп работы.* **5.** *што.* Раздаць у гульні (карты). **6.** *што.* Вытрымаць іспыты на веды, уменне. *З. залік. З. нормы па бегу.* **7.** Стаць слабейшым, цішэйшым, горшым (разм.). *Пад вясну мароз здаў. Сэрца здало. Машына здала.* ‖ *незак.* **здава́ць**, здаю, здаеш, здае́; здаём, здаяце́, здаю́ць; здава́й. ‖ *наз.* **зда́ча**, -ы, *ж.* (да 1—3, 5 і 6 знач.).

**ЗДА́ЧА**[1], -ы, *ж.* **1.** *гл.* здаць. **2.** Лішак грошай, які вяртаецца пры разліку; рэшта. *Атрымаць здачу. З. з пяці тысяч рублёў.* ◊ **Даць здачы** *каму* (разм.) — адказаць ударам на ўдар.

**ЗДА́ЧА**[2] *гл.* здацца[1].

**ЗДВО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., што.* **1.** Зрабіць што-н. двайным. *З. нітку.* **2.** Занава размясціць у страі ў дзве шарэнгі. *З. рады.* ‖ *незак.* **здво́йваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **здво́йванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **здвае́нне**, -я, *н.*

**ЗДВУРУ́ШНІЧАЦЬ** *гл.* двурушнічаць.

**ЗДЗЕ́ЙСНІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніцца; *зак.* Ажыццявіцца, збыцца. *Мая мара здзейснілася.* ‖ *незак.* **здзяйсня́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **здзяйсне́нне**, -я, *н.*

**ЗДЗЕ́ЙСНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што.* **1.** Ажыццявіць, ператварыць у рэчаіснасць. *З. планы.* **2.** Зрабіць што-н. незвычайнае. *З. подзвіг.* ‖ *незак.* **здзяйсня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **здзяйсне́нне**, -я, *н.*

**ЗДЗЕК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* здзекавацца. **2.** Злая, зняважальная насмешка, а таксама зняважальны ўчынак ці паводзіны ў адносінах да каго-, чаго-н. *Зносіць здзекі ад каго-н.* ‖ *прым.* **здзе́клівы**, -ая, -ае. *Здзеклівая ўсмешка.*

**ЗДЗЕ́КАВАЦЦА**, -куюся, -куешся, -куецца; -куйся; *незак., з каго-чаго.* **1.** Мучыць, катаваць каго-н. *З. з людзей.* **2.** Злосна, зняважліва высмейваць, абражаць каго-, што-н., кпіць з каго-, чаго-н. *Недаравальна з. з чалавека.* ‖ *наз.* **здзек**, -у, *м.*

**ЗДЗЕ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Двухбаковы дагавор аб выкананні чаго-н. *Гандлёвая з. Зрабіць здзелку. З. з сумленнем* (перан.: учынак супраць уласных перакананняў).

**ЗДЗЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які аплачваецца па колькасці зробленага. *Здзельная работа. Здзельная аплата.* ‖ *наз.* **здзе́льнасць**, -і, *ж.*

**ЗДЗЕ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які выконвае здзельную работу. ‖ *ж.* **здзе́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **здзе́льшчыцкі**, -ая, -ае.

**ЗДЗЕ́ЛЬШЧЫНА**, -ы, *ж.* Здзельная работа.

**ЗДЗЕРАВЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *адзеравянелы.*

**ЗДЗЕРАВЯНЕ́ЦЬ** *гл.* дзеравянець.

**ЗДЗЕ́РЦІ** *гл.* драць.

**ЗДЗЕ́РЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., здзярэ́цца; здзёрся, здзе́рлася; *зак.* Тое, што і *садрацца. Лыка лёгка здзерлася.* ‖ *незак.* **здзіра́цца**, -а́ецца.

**ЗДЗЕ́ЎБВАЦЬ** *гл.* здзяўбці.

**ЗДЗІВІ́ЦЦА**, здзіўлюся, здзі́вішся, здзі́віцца; *зак.* Прыйсці ў здзіўленне. *З. нечаканаму прыезду родзіча.* ‖ *незак.* **здзіўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ЗДЗІВІ́ЦЬ**, здзіўлю, здзі́віш, здзі́віць; здзі́ўлены; *зак., каго (што).* Выклікаць здзіўленне. *Твае словы мяне вельмі здзівілі. Вас нічым не здзівіш.* ‖ *незак.* **здзіўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ЗДЗІМА́ЦЬ** *гл.* здзьмуць.

**ЗДЗІРА́ЦЦА** *гл.* садрацца.

**ЗДЗІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што.* Тое, што і *драць* (у 2 знач.). *З. скуру. З. кару.*

**ЗДЗІРВАНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які пакрыўся дзірваном, ператварыўся ў дзірван. *З. курган.* ‖ *наз.* **здзірване́ласць**, -і, *ж.*

**ЗДЗІЎЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* Уражанне ад чаго-н. незвычайнага, нечаканага, незразумелага. *Спыніцца ў здзіўленні.*

**ЗДЗІЎЛЯ́ЮЧЫ**, -ая, -ае. Які выклікае здзіўленне, незвычайны. *Імчацца са здзіўляючай хуткасцю.*

**ЗДЗІЧЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які здзічэў, стаў дзікім. *З. кот.* **2.** Які выражае дзікасць, безразважнасць. *З. выгляд. З. позірк.* ‖ *наз.* **здзічэ́ласць**, -і, *ж.*

**ЗДЗІЧЭ́ЦЬ** *гл.* дзічэць.

**ЗДЗЬМУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Дзьмухаючы, скінуць, сагнаць. *З. пыл са стала.* ‖ *незак.* **здзьму́хваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **здзьму́хнуць**, -ну, -неш, -не; -нуты; -ні.

**ЗДЗЬМУЦЬ**, -му, -меш, -ме; -мём, -мяце́, -муць; -мі; -му́ты; *зак., што.* Ачысціць ад чаго-н. або знесці што-н. струменем паветра, ветру. *Вецер здзьмуў паперу.* ‖ *незак.* **здзіма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗДЗЯЙСНЕ́ННЕ** *гл.* здзейсніцца, здзейсніць.

**ЗДЗЯЙСНЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна здзейсніць. *Здзяйсняльныя жаданні.* ‖ *наз.* **здзяйсня́льнасць**, -і, *ж.*

**ЗДЗЯЙСНЯ́ЦЦА** *гл.* здзейсніцца.

**ЗДЗЯЙСНЯ́ЦЬ** *гл.* здзейсніць.

**ЗДЗЯЎБЦІ́**, -бу́, -бе́ш, -бе́; здзяўбём, здзеўбяце́, здзяўбу́ць; здзёўб, здзяўбла́, -ло́; -бі́; здзяўба́ны *і* здзёўбаны; *зак., што.* **1.** Дзеўбучы, з'есці. *Кураняты здзяўблі тварог.* **2.** Дзеўбучы, зрабіць ямкі; параніць у многіх месцах. *Пеўні здзяўблі адзін аднаго. Пешняй здзяўблі тратуар.* ‖ *незак.* **здзёўбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗДЗЯЦІ́НЕЦЬ** *гл.* дзяцінець.

**ЗДО́БА**, -ы, *ж.* **1.** Тлушч, цукар і яйкі, што дабаўляюцца ў цеста. *Дабавіць здобы ў цеста.* **2.** *зб.* Вырабы са здобнага цеста. *Напячы здобы.*

**ЗДО́БНЫ**, -ая, -ае. Прыгатаваны на малацэ, масле, яйках і пад. *Здобная булка.*

**ЗДО́БРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *раздобрыцца.*

**ЗДО́ЛЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* **1.** *з інф.* Быць у стане зрабіць, выканаць што-н. *Я здолею рашыць гэту задачу.* **2.** *з інф.* Атрымаць магчымасць зрабіць што-н. пры пэўных абставінах. *Учора я не здолеў паехаць.* **3.** *каго-што.* Адолець, асіліць. *Агульнымі намаганнямі ўсё можна з.*

**ЗДО́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Прыродны дар, таленавітасць. *Чалавек з вялікімі здольнасцямі.* **2.** Уменне, а таксама магчымасць утвараць якія-н. дзеянні. *З. рухацца. Прапускная з. дарог. Пакупная з. насельніцтва.*

**ЗДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае; -лен, -льна. **1.** Які мае здольнасці да чаго-н., таленавіты. *З. інжынер. З. да матэматыкі.* **2.** Які можа што-н. зрабіць; які валодае пэўным уменнем. *З. да ўсякай работы. Гэты чалавек на ўсё з.* (ні перад чым не спыніцца).

**ЗДОР**, -у, *м.* Нутраное свіное сала. *Мазаць бліны здорам.* ‖ *прым.* **здо́равы**, -ая, -ае.

**ЗДО́РАВА**, *прысл.* (разм.). **1.** Вельмі моцна. *Ну і з. ж бухаюць гарматы.* **2.** Вельмі добра, выдатна. *Зроблена з.*

**ЗДО́ЎЖЫЦЦА** *гл.* доўжыцца.

**ЗДО́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Тое, што і *дохлы. Здзіраць скуру са здохлага каня.* **2.** *перан.* Слабы, кволы (разм.). *Чаго ён такі з. ў вас?* ‖ *наз.* **здо́хласць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ЗДО́ХНУЦЬ** *гл.* дохнуць.

**ЗДРАБНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які здрабнеў, дробны, схуднелы. *З. твар. Здрабнелая жывёла.*

**ЗДРАБНЕ́ЦЬ** *гл.* драбнець.

**ЗДРАБНІ́ЦЬ** *гл.* драбніць.

**ЗДРА́ВІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -віц, *ж.* (высок.). Тост за здароўе. *З. ў гонар пераможцаў.*

**ЗДРА́ДА**, -ы, *М* -дзе, *мн.* -ы, здрад, *ж.* **1.** Здрадніцтва інтарэсам радзімы, пераход на бок ворага. *З. радзіме.* **2.** Парушэнне вернасці каму-, чаму-н. *З. сябру. З. ідэалам.*

**ЗДРА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *зак.* **1.** *каму-чаму.* Перайсці на бок ворага, прадаць. *З. радзіме.* **2.** *каму-чаму.* Парушыць вернасць. *З. сябру. З. сабе* (зрабіць што-н. насуперак сваім перакананням). **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., каму.* Перастаць служыць; аслабець (пра сілы, здольнасці, пачуццёвыя ўспрыманні). *Памяць здрадзіла ёй. Сілы здрадзілі спартсмену.* ‖ *незак.* **здра́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗДРА́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які можа здрадзіць, прадажны. *З. чалавек.* **2.** Які заключае ў сабе здраду, з'яўляецца здрадай. *З. ўчынак.* **3.** *перан.* Падманлівы, каварны, які ўтойвае ў сабе што-н. непрыемнае. *Здрадлівая ўсмешка. З. лёд.* ‖ *наз.* **здра́длівасць**, -і, *ж.*

**ЗДРА́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто здрадзіў каму-, чаму-н., прадаў каго-, што-н. *З. народа.* ‖ *ж.* **здра́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **здра́дніцкі**, -ая, -ае.

**ЗДРА́ДНІЦТВА**, -а, *н.* Паводзіны, учынкі здрадніка.

**ЗДРАНЦВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які страціў адчувальнасць, гібкасць, адзеравянелы.

*Здранцвелыя ад холаду пальцы. Быць у здранцвелым стане* (таксама перан.). ‖ *наз.* **здранцве́ласць**, -і, *ж.*

**ЗДРАНЦВЕ́ЦЬ** *гл.* дранцвець.

**ЗДРАТАВА́ЦЬ** *гл.* дратаваць.

**ЗДРА́ЎНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Агульная назва санаторыяў, дамоў адпачынку. *Дзіцячая з.*

**ЗДРАХЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Слабы, хілы ад старасці або спарахнелы, струхнелы. *З. чалавек. Здрахлелая хата.*

**ЗДРАХЛЕ́ЦЬ** *гл.* драхлець.

**ЗДРУЖЫ́ЦЦА**, -ужу́ся, -у́жышся, -у́жыцца; *зак.* Зблізіцца, пасябраваць. ‖ *незак.* **здру́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗДРУЖЫ́ЦЬ**, -ужу́, -у́жыш, -у́жыць; -у́жаны; *зак., каго (што).* Звязаць дружбай, зблізіць. *Іх здружыла праца.* ‖ *незак.* **здру́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗДРЫГАНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няцёся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Прыйсці ў рэзкі вагальны рух, задрыжаць. *Пад нагамі здрыганулася зямля.* **2.** Уздрыгнуць, закалаціцца ад моцнага хвалявання, узрушэння і пад. *З. ад моцнага крыку.* ‖ *незак.* **здрыга́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗДРЭ́ЙФІЦЬ** *гл.* дрэйфіць.

**ЗДУБЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які страціў рухомасць, адчувальнасць ад холаду; зацвярдзелы, адубянелы. *Здубянелыя на марозе рукі. З. ад сырасці плашч.* ‖ *наз.* **здубяне́ласць**, -і, *ж.*

**ЗДУБЯНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Страціць рухомасць, адчувальнасць ад холаду; зацвярдзець, адубянець. *Ногі здубянелі. Адзежа на ім здубянела.*

**ЗДУ́ЖАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Узяць верх у барацьбе, бойцы; перамагчы. *Бароўся з тым, каго мог з.* **2.** *што* і *з інф.* Справіцца з тым, што патрабуе вялікіх фізічных намаганняў, многа працы. *Здужаў падняць на плечы мех.* **3.** *перан., што.* Засвоіць, зразумець (разм.). *З. курс фізікі.* ‖ *незак.* **зду́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗДУРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *зак.* (разм.). Сказаць, зрабіць якое-н. глупства, дурасць. *Я здураваў, што сам не схадзіў на нараду.*

**ЗДУРНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які здурнеў, страціў розум.

**ЗДУРНЕ́ЦЬ** *гл.* дурнець.

**ЗДУ́РУ**, *прысл.* (разм.). Па глупстве, непаразуменні. *З. прагаварылася.*

**ЗДУ́ШАНЫ**, -ая, -ае. Пра голас, гукі і пад.: прыглушаны, аслаблены. *З. плач.* ‖ *наз.* **зду́шанасць**, -і, *ж.*

**ЗДУШЫ́ЦЬ**, здушу́, зду́шыш, зду́шыць; зду́шаны; *зак., каго-што.* Душачы, сціснуць з сілай. *З. каго-н. у натоўпе. Спазмы здушылі горла. Сум балюча здушыў сэрца* (перан.). ‖ *незак.* **зду́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗДЫМАК**, -мка, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* Фатаграфічны адбітак каго-, чаго-н.

**ЗДЫМА́ЦЦА** *гл.* зняцца.

**ЗДЫМА́ЦЬ** *гл.* зняць.

**ЗДЫ́МАЧНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для здымкі, ажыццяўляе здымку. *Здымачная група. Здымачная пляцоўка.*

**ЗДЫ́МКА** *гл.* зняць.

**ЗДЫ́МНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна зняць, не прымацаваны да чаго-н. *Здымнае кола.*

**ЗДЫХАТА́**, -ы́, *ДМ* -хаце́, *ж.* (разм.). **1.** Павальная гібель жывёлы ў час эпідэміі. **2.** Тое, што і *здыхляціна* (у 2 знач.).

**ЗДЫ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (часцей з адмоўем). Тое, што і *аддыхацца. Так бегла, што цяпер з. не магу.*

**ЗДЫХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Паміраць (пра жывёлу і, груба, пра чалавека). *З. ад нуды* (перан.: вельмі нудзіцца, сумаваць; разм.).

**ЗДЫХЛЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм., пагард.). Пра слабага, худога чалавека.

**ЗДЫХЛЯ́ЦІНА**, -ы, *мн.* -ы, -цін (разм.). **1.** *ж.* Труп дохлай жывёліны. **2.** *перан., м.* і *ж.* Тое, што і *здыхляк* (жарт., пагард.).

**ЗЕ́БРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Дзікі афрыканскі конь з паласатай (чорнай і светла-жоўтай) афарбоўкай поўсці. ‖ *прым.* **зе́бравы**, -ая, -ае.

**З'Е́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Злосна-насмешлівы, ядавіты, які імкнецца дапячы. *З. крытык. З. тон.* ‖ *наз.* **з'е́длівасць**, -і, *ж.*

**З'ЕЗД**[1], -а *і* -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у, *гл.* з'ехацца. **2.** -а. Сход прадстаўнікоў якіх-н. вялікіх арганізацый, груп насельніцтва і пад. *З. славістаў.* ‖ *прым.* **з'е́здаўскі**, -ая, -ае (да 2 знач.; разм.).

**З'ЕЗД**[2], -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Месца, па якім з'язджаюць, спуск. *Стромкі з.*

**З'Е́ЗДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** Паехаць куды-н. і, пабыўшы, вярнуцца назад. *З. у горад. З. па дровы.* **3.** *што.* Зрабіць непрыгодным ад частай язды або стаптаць, папсаваць частай яздой. *Калёсы зусім з'ездзілі. З. пожню.* ‖ *незак.* **з'е́зджваць**, -аю, -аеш, -ае (да 3 знач.).

**ЗЕЛЕНАВАТА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: з зялёным адценнем, напр.: *зеленавата-буры, зеленавата-сіні.*

**ЗЕ́ЛЕНЬ**, -і, *ж.* **1.** Зялёны колер, што-н. зялёнае. **2.** Расліннасць, расліны. *З. садоў. Сакавітая з. лугу.* **3.** *зб.* Некаторыя віды гародніны і траў, што скарыстоўваюцца ў ежу. *Пакласці ў суп з.*

**ЗЕ́ЛЛЕ**, -я, *н.* (разм.). **1.** Тое, што і *пустазелле.* **2.** Травы як корм для жывёлы; ахрап'е. *Насячы зелля.* **3.** Лекавыя травы, а таксама настой на іх для лячэбных мэт; зёлкі. *Варыць з. Лячыцца зеллем.*

**ЗЕЛЯНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Станавіцца зялёным. *Медзь зелянее. З. ад злосці.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пакрывацца свежай травой, лісцем. *Пачалі з. лугі і дрэвы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Віднецца (пра што-н. зялёнае). ‖ *зак.* **пазеляне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 1 знач.) *і* **ззеляне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 1 знач.).

**ЗЕЛЯНІ́НА**, -ы, *ж.* Тое, што і *зелень* (у 2 і 3 знач.). *З. паркаў. Латок з зелянінай.*

**ЗЕЛЯНІ́ЦЬ**, зеляню́, зялёніш, зяле́ніць; *незак., што.* Рабіць зялёным, фарбаваць у зялёны колер. ‖ *зак.* **пазеляні́ць**, -зеляню́, -зялёніш, -зяле́ніць; -зялёнены.

**ЗЕМЛЕ...** (а таксама **земля...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да Зямлі (у 1 знач.), напр., *землеапісанне* (уст.); 2) які мае адносіны да зямлі (у 2—5 знач.), напр.: *землекарыстанне, землеразрыхляльны, землеўгнаенне, землеўпарадчык, землечарпалка, землеадкрывальнік, землеўладальнік.*

**ЗЕМЛЕКАРЫСТА́ННЕ**, -я, *н.* (афіц.). Карыстанне зямлёй, сельскагаспадарчая эксплуатацыя яе. *Сістэма землекарыстання.*

**ЗЕМЛЕПРАХО́ДЗЕЦ**, -дца, *мн.* -дцы, -дцаў, *м.* Даўнейшая назва падарожніка-даследчыка, які адкрываў новыя землі. *Рускі з. Сямён Дзяжнёў.*

**ЗЕМЛЕТРАСЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Моцнае ваганне асобных участкаў зямной кары.

**ЗЕМЛЕЎЛАДА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая карыстаецца зямлёй на правах прыватнай уласнасці. *Буйны з.* ‖ *ж.* **землеўлада́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **землеўлада́льніцкі**, -ая, -ае.

**ЗЕМЛЕЎЛАДА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Уладанне зямлёй на правах прыватнай уласнасці (кніжн.). **2.** Зямельны ўчастак, што знаходзіцца ў чыім-н. уладанні (афіц.).

**ЗЕМЛЕЎЛА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *землеўладальнік.* ‖ *ж.* **землеўла́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **землеўла́сніцкі**, -ая, -ае.

**ЗЕМЛЕЎПАРА́ДКАВАННЕ**, -я, *н.* Сістэма мерапрыемстваў, якія ўпарадкоўваюць землекарыстанне. ‖ *прым.* **землеўпара́дкавальны**, -ая, -ае.

**ЗЕМЛЕЎПАРА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне землеўпарадкавання.

**ЗЕМЛЕЧАРПА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Машына для паглыблення дна (рэк, каналаў і пад.), якая дастае грунт чарпакамі, прымацаванымі да рухомага ланцуга.

**ЗЕМЛЕЧАРПА́ННЕ**, -я, *н.* Паглыбленне дна вадаёмаў пры дапамозе землечарпалак. ‖ *прым.* **землечарпа́льны**, -ая, -ае.

**ЗЕМЛЯ...** (*гл.* **земле...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «земле...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *землябітны, землязнавец, землязнаўства, землякоп, земляроб, землясос.*

**ЗЕМЛЯБІ́ТНЫ**, -ая, -ае. Зроблены са шчыльна збітай зямлі з дабаўленнем вяжучых рэчываў. *Землябітная хатка.*

**ЗЕМЛЯКО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочы па земляных работах. ‖ *прым.* **землякО́пскі**, -ая, -ае.

**ЗЕМЛЯКО́ПНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да земляных работ. *Землякопныя машыны.*

**ЗЕМЛЯМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Тое, што і *каморнік.* ‖ *прым.* **землямéрскі**, -ая, -ае.

**ЗЕМЛЯМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да вымярэння і адвядзення зямельных участкаў; каморніцкі. *Землямерныя работы.*

**ЗЕМЛЯНЫ́** *гл.* зямля.

**ЗЕМЛЯРО́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца земляробствам; хлебароб. ‖ *прым.* **земляро́бскі**, -ая, -ае. *Земляробская праца.*

**ЗЕМЛЯРО́БСТВА**, -а, *н.* **1.** Апрацоўка зямлі для вырошчвання сельскагаспадарчых раслін. *Высокая культура земляробства.* **2.** Раздзел аграноміі, які вывучае спосабы карыстання зямлёй і павышэння ўрадлівасці глебы. ‖ *прым.* **земляро́бчы**, -ая, -ае.

**ЗЕМЛЯРЫ́ЙКА**, -і, *ДМ* -рыйцы, *мн.* -і, -рыек, *ж.* Насякомаедная млекакормячая жывёліна, роднасная крату. ‖ *прым.* **земляры́йкавы**, -ая, -ае.

**ЗЕМЛЯРЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для земляных работ. *Землярыйныя машыны.*

**ЗЕМЛЯСО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Помпа ў землясосным снарадзе для вымання і транспарціроўкі грунту. ‖ *прым.* **земляcóсны**, -ая, -ае.

**ЗЕМЛЯСО́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* землясос. **2.** У выразе: **землясосны снарад** — машына для земляных работ, якая пры дапамозе помпы вымае і транспартуе па трубаправодах разрэджаны вадою грунт, земснарад.

**ЗЕМЛЯТРУ́С**, -у, *м.*, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *землетрасенне.*

**ЗЕМНАВО́ДНЫ**, -ая, -ае. Прыстасаваны да жыцця ў вадзе і на сушы. *Земнаводныя жывёлы. Вывучэнне земнаводных* (наз.).

**ЗЕ́МСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* земства. **2.** Агульнадзяржаўны (гіст.). *Земскае апалчэнне.* ○ **Земскі начальнік** — у царскай Расіі — чыноўнік з судова-адміністрацыйнай і паліцэйскай уладай, кіраўнік сялянскага насельніцтва пэўнага раёна.

**ЗЕМСНАРА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Плывучы землясосны і землечарпальны снарад для гідратэхнічных работ.

**ЗЕ́МСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (гіст.). Мясцовае самакіраванне ў сельскіх мясцовасцях з перавагай дваранства ў яго органах. *Губернскае з. Павятовае з.* ‖ *прым.* **зéмскі**, -ая, -ае. *Земская ўправа. З. сход.*

**ЗЕ́МШЧЫНА**, -ы, *ж.* (гіст.). Частка дзяржавы, выдзеленая Іванам Грозным у кіраванне баярам (у адрозненне ад апрычніны).

**ЗЕНІ́Т**, -у, *М* -ніце, *м.* **1.** У астраноміі: найвышэйшы пункт нябеснай сферы, які знаходзіцца прама над галавой наглядальніка. **2.** *перан.* Вышэйшая ступень, вяршыня чаго-н. (высок.). *З. славы.* ‖ *прым.* **зені́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЗЕНІ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (разм.). Зенітная гармата.

**ЗЕНІ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* зеніт. **2.** Прызначаны для стральбы па самалётах і іншых паветраных цэлях. *З. снарад. З. кулямёт.*

**ЗЕНІ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Артылерыст зенітнай артылерыі. ‖ *ж.* **зені́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЗЕ́РНЕ**, -я, зярня́ці, *мн.* зéрні, -яў *і* зярня́ты, -ня́т, *н.* **1.** Плод, семя злакаў (а таксама некаторых іншых раслін). *Ячменнае з. Кава ў зернях.* **2.** *зб.* Насенне хлебных злакаў. *Хлеб у зерні.* **3.** Невялікі прадмет, крупінка чаго-н. *Жамчужнае з.* **4.** *перан.* Ядро, зародак чаго-н. (кніжн.). *З. ісціны.* ‖ *памянш.* **зярня́тка**, -а, *мн.* -і, -так, *н.* (да 1 і 3 знач.) *і* **зéрнетка**, -а, *мн.* -і, -так, *н.* (да 1 і 3 знач.). ‖ *прым.* **зéрневы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.) *і* **зерняві́**, -áя, -óе (да 1 і 2 знач.). *Зерневыя (зернявыя) культуры.*

**ЗЕРНЕ...** (а таксама **зерня...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да зерня (у 1 і 2 знач.), напр.: *зернедрабілка, зернепадобны, зернеплюшчылка, зернесартавальны, зернесушылка, зернеўвільгатняльнік, зернефураж.*

**ЗЕРНЕБАБО́ВЫ**, -ая, -ае. Пра бабовую расліну: які вырошчваецца для атрымання зерня. *Зернебабовыя культуры.*

**ЗЕРНЕДРАБІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Машына для драблення зерня, якое ідзе на корм. ‖ *прым.* **зернедрабі́льны**, -ая, -ае.

**ЗЕРНЕСУШЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Спецыяльна прыстасаванае памяшканне для сушкі зерня. **2.** Механічная ўстаноўка для сушкі зерня.

**ЗЕРНЯ...** (*гл.* **зерне...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «зерне...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *зернявоз, зернясейны.*

**ЗЕРНЯСХО́ВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Памяшканне для захоўвання зерня.

**З'Е́СЦІ** *гл.* есці.

**ЗЕЎ**, зéва, *мн.* зéвы, зéваў, *м.* Адтуліна, што злучае поласць рота з глоткай. *Слізістая абалонка зева.*

**ЗЕ́ЎРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (разм.). Прорва, адтуліна. *Цёмная з. прадоння.*

**ЗЕ́ЎРАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* (разм.). Быць бачным, адкрытым (пра адтуліну, яму і пад.). *Зеўрае бяздонне.*

**ЗЕФІ́Р**[1], -у, *м.* У старажытных грэкаў: заходні вецер; у паэзіі: цёплы лёгкі вецер. ‖ *прым.* **зефі́рны**, -ая, -ае.

**ЗЕФІ́Р**[2], -у, *м.* Род пасцілы. ‖ *прым.* **зефі́рны**, -ая, -ае.

**ЗЕФІ́Р**[3], -у, *м.* Тонкая баваўняная тканіна. ‖ *прым.* **зефі́равы**, -ая, -ае. *Зефіравая сарочка.*

**З'Е́ХАЦЦА**, з'éдуся, з'éдзешся, з'éдзецца; з'éдзься; *зак.* **1.** Едучы, сустрэцца, сутыкнуцца. *З. на ростанях.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сабрацца ў адно месца, прыехаўшы з розных месц (пра многіх). *На вяселле з'ехалася ўся радня.* ‖ *незак.* **з'язджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **з'езд**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 2 знач.).

**З'Е́ХАЦЬ**, з'éду, з'éдзеш, з'éдзе; з'éдзь; *зак.* **1.** Едучы, спусціцца з чаго-н. *З. з гары на санках.* **2.** Едучы, павярнуць у бок. *З. з дарогі.* **3.** Пакінуць якое-н. жыллё, перасяліўшыся (разм.). *З. з кватэры.* **4.** *перан.* Ссунуцца з месца, спаўзці; асунуцца ўніз (разм.). *Шапка з'ехала на патыліцу. У непрытомнасці жанчына з'ехала на зямлю.* ◊ **З'ехаць з глузду** (разм.) — страціць розум, звар'яцець. ‖ *незак.* **з'язджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗЁЛКІ**, -лак, *адз.* зёлка, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* Лекавыя травы. *Збіраць з.*

**ЗЖАВА́ЦЬ**, зжую́, зжуéш, зжуé; зжуём, зжуяцé, зжую́ць; зжу́й; зжава́ны; *зак.*, *што.* **1.** Пажаваўшы, з'есці. **2.** Сапсаваць жаваннем. *Цяля зжавала кашулю.* ‖ *незак.* **зжо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЗЖА́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; -лься; *зак.*, *над кім-чым.* Праявіўшы, адчуўшы жаласць, зрабіць што-н. патрэбнае, прыемнае для каго-, чаго-н., злітавацца. *З. над небаракам.*

**ЗЖАЎЦЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які зжаўцеў, стаў жоўтым. *Зжаўцелыя старыя здымкі.*

**ЗЖАЎЦЕ́ЦЬ** *гл.* жаўцець.

**ЗЖАХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* (разм.). Раптоўна і моцна спужацца.

**ЗЖАЦЬ** *гл.* жаць.

**ЗЖО́ЎКЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *зжаўцелы. Зжоўклая трава.*

**ЗЖО́ЎКНУЦЬ** *гл.* жоўкнуць.

**ЗЖУ́ЛЬНІЧАЦЬ** *гл.* жульнічаць.

**ЗЖУ́ХНУЦЬ** *гл.* жухнуць.

**ЗЖЫНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.*, *што.* Тое, што і *жаць.*

**ЗЖЫ́ЦЦА**, зжыву́ся, зжывéшся, зжывéцца; зжывёмся, зжывяцéся, зжыву́цца; зжыу́ся, зжыла́ся, -ло́ся; *зак.* **1.** *з кім.* Жывучы разам, звыкнуцца, здружыцца. *З. з новымі таварышамі.* **2.** *перан.*, *з чым.* Прывыкнуць. *З. з абставінамі. З. з вобразам* (пра акцёра: пераўвасобіцца ў мастацкі вобраз). ‖ *незак.* **зжыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ЗЖЫЦЬ**, зжыву́, зжывéш, зжывé; зжывём, зжывяцé, зжыву́ць; зжыу́, зжыла́, -ло́; зжыты; *зак.* **1.** *каго (што) з чаго і без дап.* Стварыўшы невыносныя ўмовы, не даць жыць каму-н. дзе-н. *Зжылі злоснікі добрага чалавека. З. са свету* (змучыць чым-н.). **2.** *што.* Пазбавіцца ад чаго-н., выкараніць у сабе што-н. *З. недахопы.* **3.** Пражыць (жыццё, многа гадоў і пад.). *Чалавек жыццё зжыў, а розуму не набраўся.* ‖ *незак.* **зжыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ЗЖЭ́РЦІ** *гл.* жэрці.

**З-ЗА**, *прыназ. з Р.* **1.** Ужыв. пры абазначэнні напрамку, руху адкуль-н., з месца, закрытага чым-н., з супрацьлеглага боку чаго-н. *Выглядваць з-за дзвярэй. Дом віднеецца з-за агароджы. Вылезці з-за стала.* **2.** Ужыв. пры ўказанні на прычыну, падставу дзеяння або пры ўказанні на асобу, што

з'яўляецца прычынай чаго-н. *Спрачацца з-за дробязей. З-за яго столькі непрыемнасцей.*

**ЗЗА́ДУ**. **1.** *прысл.* З задняга боку. *Напасці з.* **2.** *прыназ. з Р.* За кім-, чым-н. *Ён ішоў з. воза.*

**ЗЗЕЛЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які ззеленеў, пазеленеў. *З. твар.*

**ЗЗЕЛЯНЕ́ЦЬ** *гл.* зелянець.

**ЗЗЫВА́ЦЬ** *гл.* сазваць.

**ЗЗЯ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* ззяць. **2.** Яркае святло, якое выпраменьваецца або адлюстроўваецца чым-н. *Сонечнае з. У ззянні славы* (перан.). ○ **Паўночнае ззянне** — свячэнне высокіх слаёў атмасферы, якое назіраецца за палярным кругам.

**ЗЗЯЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* **1.** Вылучаць ззянне. *Ззяюць зоркі. На грудзях ветэрана ззяюць узнагароды.* **2.** *перан., чым* і *ад чаго.* Блішчаць, выражаючы якія-н. пачуцці (пра вочы), або свяціцца радасцю, шчасцем і пад. (пра чалавека). *Вочы ззяюць ад шчасця. Твары людзей ззялі радасцю.* **3.** Тое, што і *зеўраць. У адной са сцен ззяла вялікая прабоіна.* ‖ *наз.* **ззя́нне**, -я, *н.* (да 1 знач. і пра вочы, твар, да 2 знач.).

**ЗІГЗА́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ламаная лінія. *Зігзагі маланкі. Чарціць зігзагі.*

**ЗІГЗАГАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. У выглядзе зігзагаў. *Зігзагападобныя рухі.* ‖ *наз.* **зігзагападо́бнасць**, -і, *ж.*

**ЗІМА́**, -ы, *мн.* зі́мы *і* (*з ліч. 2, 3 і 4*) зімы́, зім, *ж.* Самая халодная пара года паміж восенню і вясной. *Снежная з. Рыхтавацца да зімы.* ‖ *прым.* **зімо́вы**, -ая, -ае *і* **зі́мні**, -яя, -яе.

**ЗІМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; *незак.* Праводзіць дзе-н. зіму, жыць дзе-н. зімой. *З. на палярнай станцыі.* ‖ *зак.* **празімава́ць**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й *і* **празімава́ць**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й. ‖ *наз.* **зімо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -мо́вак, *ж.* ‖ *прым.* **зімава́льны**, -ая, -ае (спец.). *Зімавальная сажалка* (сажалка, у якой зімуе рыба).

**ЗІМАРО́ДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* Невялікая птушка, родная ўдоду, з доўгай прамой дзюбай і вялікай галавой на кароткай шыі (зімой купаецца ў снезе). ‖ *прым.* **зімаро́дкавы**, -ая, -ае. *Сямейства зімародкавых* (наз.).

**ЗІМАЎСТО́ЙЛІВЫ**, -ая, -ае. Здольны пераносіць зімовыя халады (пра расліны). *Зімаўстойлівыя гатункі сліў.* ‖ *наз.* **зімаўсто́йлівасць**, -і, *ж.*

**ЗІ́МНІ** *гл.* зіма.

**ЗІ́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Дарога, пракладзеная прама па снезе для язды зімой. ‖ *прым.* **зі́мнікавы**, -ая, -ае.

**ЗІМО́ВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Месца, памяшканне, дзе зімуюць або спыняюцца зімой людзі. *Спыніцца ў зімовішчы.*

**ЗІМО́ВЫ** *гл.* зіма.

**ЗІМО́Й**, *прысл.* У час зімы. *Рыхтуй летам сані, а з. калёсы* (прыказка).

**ЗІМО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Тое, што і *зімовішча.*

**ЗІМО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -мо́вак, *ж.* **1.** *гл.* зімаваць. **2.** Тое, што і *зімовішча. Пабудаваць зімоўку.*

**ЗІМО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які знаходзіцца дзе-н. на зімоўцы. *Палярныя зімоўшчыкі.* ‖ *ж.* **зімо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЗІРК**, *у знач. вык.* (разм.). Ужыв. замест дзеясловаў зірнуць, зіркнуць пры выражэнні нечаканасці, раптоўнасці выяўлення ці наступлення чаго-н. *Я з. пад елку, а там тры баравікі стаяць.*

**ЗІРКА́СТЫ** *і* **ЗІРКА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** З вялікімі вачамі; вірлавокі. **2.** З вострым зрокам; зоркі. ‖ *наз.* **зірка́стасць**, -і, *ж.* *і* **зірка́тасць**, -і, *ж.*

**ЗІ́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Кідаць позірк на каго-, што-н., пазіраць. *З. па баках.* ‖ *аднакр.* **зі́ркнуць**, -ну, -неш, -не; -ні *і* **зірну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **зі́рканне**, -я, *н.*

**ЗІХАТЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які блішчыць, ззяе пераліўістым святлом, напоўнены яркім ззяннем, бляскам. *Зіхатлівае сонца. Стаяла зіхатлівая раніца. Зіхатлівая прыгажосць* (перан.). ‖ *наз.* **зіхатлі́васць**, -і, *ж.*

**ЗІХАЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ціць; *незак.* Блішчэць, ззяць пераліўістым святлом; пераліваццa, адбіваючы святло. *Зіхацелі зоркі. На мокрай траве зіхаціць раса. У кватэры ўсё зіхаціць ад чысціні* (вылучаецца чысцінёй). ‖ *наз.* **зіхаце́нне**, -я, *н.*

**ЗІЯ́ННЕ**, -я, *н.* У мовазнаўстве: збег двух ці больш галосных у слове або на стыку двух слоў, напр.: *аэраплан, добра адпачыць.*

**ЗЛАБАДЗЁННЫ**, -ая, -ае. Істотны для дадзенага моманту; надзённы. *Злабадзённае пытанне.* ‖ *наз.* **злабадзённасць**, -і, *ж.*

**ЗЛАВА́ЦЦА**, злуюся, злуешся, злуецца; злуёмся, злуяцеся, злуюцца; злу́йся; *незак.* Адчуваць злосць. ‖ *зак.* **узлава́цца**, -луюся, -луе́шся, -луе́цца; -луёмся, -луяце́ся, -лую́цца; -лу́йся *і* **раззлава́цца**, -луюся, -луе́шся, -луе́цца; -луёмся, -луяце́ся, -лую́цца; -лу́йся.

**ЗЛАВА́ЦЬ**, злую́, злуе́ш, злуе́; злуём, злуяце́, злую́ць; злуй; *незак.* **1.** *каго.* Абуджаць злосць у каго-н. **2.** Тое, што і *злавацца.* ‖ *зак.* **узлава́ць**, -лую́, -луе́ш, -луе́; -луём, -луяце́, -лую́ць; -лу́й (да 1 знач.) *і* **раззлава́ць**, -лую́, -луе́ш, -луе́; -луём, -луяце́, -лую́ць; -лу́й (да 1 знач.).

**ЗЛАВЕ́СНЫ**, -ая, -ае. Які прадвяшчае няшчасце, зло. *Злавесная цішыня. Злавесныя прыметы.*

**ЗЛАВІ́РАВАЦЬ** *гл.* лавіраваць.

**ЗЛАВІ́ЦЬ** *гл.* лавіць.

**ЗЛА́ГАДА**, -ы, *ДМ* -гадзе, *ж.* (разм.). Згода, дружныя адносіны. *Жыць у злагадзе.*

**ЗЛАД**, -у, *м.* У выразе : **зладу няма** *з кім-чым* (разм.) — немагчыма справіцца, зладзіць з кім-, чым-н. *Тут з адным дзіцем і то зладу няма, а там чацвёра.*

**ЗЛА́ДЖАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, у якім дасягнута ўзаемная згода; дружны. *Зладжаная работа.* **2.** Стройны, гарманічны. *Зладжаныя спевы.* ‖ *наз.* **зла́джанасць**, -і, *ж.*

**ЗЛА́ДЖВАЦЬ** *гл.* зладзіць.

**ЗЛАДЗЕ́ЙКА** *гл.* злодзей.

**ЗЛАДЗЕ́ЙСКІ** *гл.* злодзей.

**ЗЛАДЗЕЯВА́ТЫ**, -ая, -ае. Падобны на зладзейскі; хітры. *Зладзеяватая ўхмылка.* ‖ *наз.* **зладзеява́тасць**, -і, *ж.*

**ЗЛА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць, пабудаваць. *З. калёсы. З. банкет* (перан.). **2.** *з кім-чым.* Прыйсці да згоды; справіцца з кім-, чым-н. *Мы з ім зладзім. З. з дзецьмі.* **3.** *што.* Зрабіць узгодненым, стройным. *З. галасы.* ‖ *незак.* **зла́джваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ЗЛАДЗЮ́ГА**, -і, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм., пагард.). Тое, што і *злодзей.*

**ЗЛАЖЫ́ЦЦА**, злажу́ся, злóжышся, злóжыцца; *зак.* **1.** Сабраць грошы на якую-н. агульную справу; скласціся (у 5 знач.). **2.** Узяўшы стрэльбу, прыцэліцца. *З. і стрэліць.* **3.** Налаўчыцца, прызвычаіцца. *З. ў рабоце.* ‖ *незак.* **склада́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **скла́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ЗЛАЖЫ́ЦЬ**, злажу́, злóжыш, злóжыць; злóжаны; *зак., што.* **1.** *гл.* класці. **2.** Палажыць разам у пэўным парадку. *З. дровы. З. чамадан* (палажыць у яго рэчы; таксама перан.: падрыхтавацца да ад'езду). **3.** Перагнуўшы, скруціўшы, палажыць, злажыць пэўным чынам, надаць якую-н. форму. *З. газету. З. пакрывала. З. раскладушку.* **4.** Павалiць, палажыць (пра ўсё, многае). *Град злажыў жыта.* **5.** *перан.* Перакласці віну на каго-н. ◊ **Злажыць галаву** (высок.) — загінуць у баі. **Злажыць рукі** (разм.) — тое, што і скласці рукі (*гл.* скласці). ‖ *незак.* **склада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2—5 знач.), **скла́дваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2—5 знач.) *і* **злóжваць**, -аю, -аеш, -ае (да 5 знач.).

**ЗЛА́ЗІЦЬ**[1] *гл.* злезці.

**ЗЛА́ЗІЦЬ**[2], зла́жу, зла́зіш, зла́зіць; *зак.* Пабыць дзе-н., узлезшы або спусціўшыся куды-н. *З. на гарышча. З. у склеп.*

**ЗЛАК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Расліна са сцяблом у форме саломіны і дробнымі кветкамі, сабранымі ў суквеццe (колас, мяцёлку або кісць). *Хлебныя злакі. Кармавыя злакі.* ‖ *прым.* **зла́кавы**, -ая, -ае. *Злакавыя расліны.*

**ЗЛАМА́ЦЦА** *гл.* ламацца.

**ЗЛАМА́ЦЬ** *гл.* ламаць.

**ЗЛАМЫ́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто жадае каму-н. зла, чыніць зло; злоснік. ‖ *ж.* **зламы́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЗЛАМЫ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае на мэце злы намер, што-н. нядобрае. *З. чалавек.* **2.** Які заключае ў сабе злы намер; злачынны (уст.). *З. ўчынак.* ‖ *наз.* **зламы́снасць**, -і, *ж.*

**ЗЛАПА́МЯТЛІВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *злапамятны.* ‖ *наз.* **злапа́мятлівасць**, -і, *ж.*

**ЗЛАПА́МЯТНЫ**, -ая, -ае. Які доўга помніць, не даруе прычыненага зла. *З. чалавек.* ‖ *наз.* **злапа́мятнасць**, -і, *ж.*

**КА́ЛІЙ**, -ю, *м.* Хімічны элемент, мяккі метал серабрыста-белага колеру. ‖ *прым.* **ка́лііевы**, -ая, -ае *і* **калі́йны**, -ая, -ае. *Калієвыя солі. Калійныя ўгнаенні.*

**КАЛІ́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ліцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -лік. У рускім народным эпасе: вандроўны старац, пераважна сляпы, які спявае духоўныя вершы і збірае міласціну.

**КАЛІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Кустовая расліна сямейства бружмелевых з белымі кветкамі і чырвонымі горкімі ягадамі, а таксама ягады гэтай расліны. ‖ *прым.* **калі́навы**, -ая, -ае.

**КАЛІ́-НЕ́БУДЗЬ**, *прысл.* У які-небудзь няпэўны час. *Зайдзі к.*

**КАЛІ́-НІКАЛІ́**, *прысл.* Зрэдку, час ад часу. *К. наведвае.*

**КАЛІ́ННІК**, -у, *м., зб.* Зараснік каліны.

**КАЛІ́СЬЦІ**, *прысл.* Некалі ў мінулым, даўней. *К. яны часта сустракаліся.*

**КАЛІ́Т**, -у, *М* -ліце, *м.* Запаленне тоўстай кішкі. ‖ *прым.* **калі́тны**, -ая, -ае.

**КАЛІ́ЎЕ**, -я, *н., зб.* Каліва (у 1 знач.); сцёблы збожжавых злакаў, траў. *Палеглае к. жыта.*

**КА́ЛІЎЦА** *гл.* каліва.

**КАЛІ́Ф**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *халіф.* ◊ **Каліф на гадзіну** (кніжн., часцей іран.) — пра чалавека, які займеў уладу на кароткі час.

**КАЛІ́ШНІ**, -яя, -яе. Тое, што і *колішні.*

**КАЛМА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Пакрыты густымі скудлачанымі валасамі, поўсцю; кудлаты, касматы. *Калматыя бровы.* **2.** *перан.* З няроўнымі, як бы пашматанымі на кавалкі краямі (пра хмары, клубы пары, туману і пад.). *Калматыя хмары.* ‖ *наз.* **калма́тасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**КАЛМА́ЦІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ціцца; *незак.* Станавіцца калматым, кудлаціцца, касмаціцца. ‖ *зак.* **пакалма́ціцца**, -ціцца, **раскалма́ціцца**, -ма́чуся, -ма́цішся, -ма́ціцца *і* (разм.) **скалма́ціцца**, -ціцца.

**КАЛМА́ЦІЦЬ**, -ма́чу, -ма́ціш, -ма́ціць; -ма́чаны; *незак., каго-што.* Рабіць калматым, кудлаціць, касмаціць. *К. воўну. К. валасы.* ‖ *зак.* **пакалма́ціць**, -ма́чу, -ма́ціш, -ма́ціць; -ма́чаны, **раскалма́ціць**, -ма́чу, -ма́ціш, -ма́ціць; -ма́чаны *і* (разм.) **скалма́ціць**, -ма́чу, -ма́ціш, -ма́ціць; -ма́чаны.

**КАЛМЫ́КІ**, -аў, *адз.* калмы́к, -а, *м.* Народ, што складае асноўнае насельніцтва Рэспублікі Калмыкія, якая ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **калмы́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **калмы́цкі**, -ая, -ае.

**КАЛО́ДА**[1], -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ло́д, *ж.* **1.** Кароткае тоўстае бервяно. **2.** Вулей, зроблены з камля дуплістага дрэва. *Чатыры калоды пчол.* **3.** *перан.* Пра непаваротлівага, нязграбнага чалавека (разм., пагард.). ◊ **Цераз пень калоду** (разм., неадабр.) — дрэнна, абы-як (рабіць што-н.).

**КАЛО́ДА**[2], -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ло́д, *ж.* Камплект ігральных карт. *У калодзе 52 карты.*

**КАЛО́ДДЗЕ**, -я, *н., зб.* Калоды, бярвёны.

**КАЛО́ДЗЕЖ**, -а, *мн.* -ы, -аў *і* **КАЛО́ДЗЕЗЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Збудаванне ў выглядзе вузкай глыбокай ямы, умацаванай ад абвалаў зрубам, трубамі для здабывання вады з ваданосных слаёў зямлі. *Пачысціць к.* **2.** Яма для розных тэхнічных патрэб (спец.). *Шахтавы к. Каналізацыйны к.* ○ **Артэзіянскі калодзеж** — буравы калодзеж з труб, які падае глыбінную напорную ваду. ‖ *прым.* **кало́дзежны**, -ая, -ае.

**КАЛО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Невялікая калода; тое, што і *калода* (у 1 знач.). *Парэзаць бярозу на калодкі.* **2.** Кусок дрэва, які служыць асновай у некаторых інструментах, прыборах. *К. рубанка.* **3.** Кусок дрэва, выструганы ў форме ступні, які выкарыстоўваецца пры пашыве абутку; капыл. *Выплятаць лапці на калодцы.* **4.** Сярэдняя частка кола, у якой умацоўваюцца спіцы. *Колы па калодкі ў гразі.* **5.** Планка для мацавання на грудзях ордэнаў, медалёў ці ордэнскіх стужак. *Ордэнская к.* ‖ *памянш.* **кало́дачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **кало́дачны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**КАЛО́ДКІ**, -дак (уст.). Масіўныя драўляныя кайданы, якія надзявалі раней на ногі, рукі і шыю арыштанта для папярэджання ўцёкаў.

**КАЛО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Арыштант, закаваны ў калодкі.

**КАЛО́ДЫЙ**, -ю, *м.* (спец.). Густы клейкі раствор нітрацэлюлозы ў сумесі спірту і эфіру (выкарыстоўваецца ў медыцыне, фатаграфіі).

**КАЛО́ІД**, -у, *М* -дзе, *м.* (спец.). Некрышталізаванае клеепадобнае рэчыва (бялок, крухмал і інш.), прамежкавае паміж растворам і эмульсіяй. ‖ *прым.* **кало́ідны**, -ая, -ае *і* **калаіда́льны**, -ая, -ае. *К. раствор.* ○ **Калоідная сістэма** — гетэрагенная сістэма, якая складаецца з мноства дробных часцінак якога-н. рэчыва, што знаходзіцца ў суспензаваным стане ў аднародным асяроддзі. **Калоідная хімія** — раздзел фізічнай хіміі, у якім разглядаюцца працэссы ўтварэння і разбурэння дысперсных сістэм.

**КАЛО́К**, калка́, *мн.* калкі́, калко́ў, *м.* **1.** *гл.* кол. **2.** Драўляны або металічны шпянёк для нацягвання струн у музычных інструментах. *Скрыпічныя калкі.* ‖ *памянш.* **кало́чак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.*

**КАЛО́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ло́н, *ж.* **1.** Частка архітэктурнага збудавання ў выглядзе высокага слупа, якая служыць апорай франтонаў, унутраных частак будынка або ў якасці манумента. *Станцыя метро з калонамі. Трыумфальная к.* **2.** Пра людзей, прадметы, якія размешчаны або рухаюцца адно за адным на пэўнай дыстанцыі. *Паходная к. Трактарная к.* ◊ **Пятая калона** (кніжн., неадабр.) — пра арганізаванае здрадніцтва ўнутры краіны (першапачаткова — аб контррэвалюцыйнай групе, якая дзейнічала ў тыле Іспанскай рэспублікі ў 1936—1939 гг.). ‖ *памянш.* **кало́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **кало́нны**, -ая, -ае (да 1 і спец. да 2 знач.). *Калонная зала.*

**КАЛО́НІЯ**, -і, *мн.* -і, -ній, *ж.* **1.** Краіна або тэрыторыя, якая знаходзіцца пад уладай замежнай дзяржавы (метраполіі), пазбаўленая палітычнай, эканамічнай і дзяржаўнай самастойнасці. **2.** Паселішча выхадцаў, перасяленцаў з другой краіны, вобласці. *Нямецкія калоніі ў Расіі.* **3.** Згуртаванне землякоў, якія жывуць у чужой краіне, у чужым горадзе. **4.** Месца жыхарства асоб, паселеных разам з той або іншай мэтай. *Дзіцячая працоўная к.* **5.** Сукупнасць арганізмаў, якія жывуць у злучэнні адзін з адным (спец.). *К. мікраарганізмаў. К. каралаў.* ‖ *прым.* **каланія́льны**, -ая, -ае (да 1 і 5 знач.). *Каланіяльная палітыка. Каланіяльныя водарасці.*

**КАЛО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* калона. **2.** Назва розных тэхнічных прыстасаванняў у форме падоўжанага цыліндра, звязанага з цэнтральным рэзервуарам, з якіх адпускаецца бензін, газ, вада і інш. *Бензінавая к. Газавая к.* **3.** Рад лічбаў, слоў, размешчаных па вертыкалі; слупок тэксту ў газеце, кнізе. *К. лічбаў. К. газетнага тэксту.* ‖ *прым.* **кало́нкавы**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.). *Калонкавае свідраванне.*

**КАЛО́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Адзінка вымярэння колькасці цеплыні.

**КАЛО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). **1.** Статуя, збудаванне велізарных памераў. *К. Радоскі.* **2.** *перан.* Пра каго-, што-н. грандыёзнае па сваёй велічыні, значнасці. *К. навукі.* ◊ **Калос на гліняных нагах** — пра што-н. з выгляду велічнае, але слабае, гатовае разваліцца.

**КАЛО́ССЕ**, -я, *н., зб.* Каласы. *Ядраным зернем налілося к.*

**КАЛО́ЦЦА**[1], калюся, ко́лешся, ко́лецца; калі́ся; *незак.* **1.** Мець здольнасць калоць (у 1 знач.). *Шыпшына колецца.* **2.** Наносіць адзін аднаму раны вострай зброяй. *К. пікамі.* **3.** Мець звычку бадацца (разм.). *Каровы колюцца.* ◊ **І хочацца і колецца** (разм., жарт.) — пра адначасовае адчуванне жадання і нерашучасці зрабіць што-н.

**КАЛО́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., ко́лецца; *незак.* **1.** Паддавацца колцы; расшчапляцца, драбніцца. *Сухое палена добра колецца.* **2.** Трэскацца, даваць трэшчыны. *Дошкі ад сонца колюцца.*

**КАЛО́ЦЬ**[1], калю́, ко́леш, ко́ле; калі́; *незак.* **1.** *каго-што.* Датыкаючыся чым-н. вострым, выклікаць боль. *К. іголкай. Цэлы дзень калола* (безас.) *пад сэрцам* (перан.). **2.** *каго (што).* Рабіць укол, уколы (разм.). *Хвораму калолі антыбіётыкі.* **3.** *каго (што).* Забіваць чым-н. вострым. *К. свінню.* **4.** *каго-што.* Біць рагамі, бадаць (разм.). *Бедная тая дамова, дзе вала коле карова* (прыказка). **5.** *перан., каго (што) і без дап.* Рабіць каму-н. колкія заўвагі, папракаць. *К. дакорамі.* ◊ **Калоць (у) во-**

**чы** (разм.) — папікаць, дакараць, сарамаціць. **Праўда вочы коле** (прыказка) — пра нежаданне слухаць непрыемную праўду. ‖ *зак.* **закалóць**, -калю́, -кóлеш, -кóле; -калі́; -кóлаты (да 3 знач.). ‖ *аднакр.* **кальну́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́ (да 1, 2 і 5 знач.).

**КАЛÓЦЬ**², калю́, кóлеш, кóле; калі́; кóлаты; *незак., што.* Рассякаць, здрабняць на часткі. *К. лёд. К. дровы.* ‖ *зак.* **раскалóць**, -калю́, -кóлеш, -кóле; -калі́; -кóлаты *і* **пакалóць**, -калю́, -кóлеш, -кóле; -калі́; -кóлаты. ‖ *наз.* **кóлка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.*

**КАЛÓША**, -ы, *мн.* -ы, -лóш, *ж.* Частка штаноў, якая надзяваецца на адну нагу; калашына.

**КАЛУМБА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (спец.). Месца, дзе пасля крэмацыі захоўваюцца урны з прахам.

**КАЛУ́Н**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Цяжкая сякера для колкі дроў. ‖ *прым.* **калу́нны**, -ая, -ае.

**КАЛУПА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* (разм.). **1.** Капацца, корпацца ў чым-н., дастаючы што-н. *К. ў грудзе ламачча.* **2.** *перан.* Рабіць што-н. марудна і няўмела.

**КАЛУПА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак., што* (разм.). Падчэпліваючы чым-н., аддзяляць, аддзіраць што-н., рабіць у чым-н. паглыбленне. *К. зямлю.* ‖ *аднакр.* **калупну́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́.

**КАЛЧАДА́Н**, -у, *м.* Руда, якая складаецца пераважна з сярністых мінералаў. *Серны к. Медны к.* ‖ *прым.* **калчада́нны**, -ая, -ае.

**КАЛЧА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). Скураная або драўляная сумка, чахол для стрэл. ‖ *прым.* **калча́нны**, -ая, -ае.

**КАЛЫ́М**, -у, *м.* **1.** У некаторых народаў Усходу: выкуп за нявесту. **2.** *перан.* Пабочны заробак (разм.). ‖ *прым.* **калы́мны**, -ая, -ае.

**КАЛЫМА́ГА**, -і, *ДМ* -мáзе, *мн.* -і, -мáг, *ж.* (разм., іран.). Пра нязграбныя калёсы, павозку, машыну. ‖ *прым.* **калыма́жны**, -ая, -ае.

**КАЛЫ́МІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; *незак.* (разм., неадабр.). Падзарабляць пабочным заробкам.

**КАЛЫ́МШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм., неадабр.). Той, хто калыміць, працуе дзеля атрымання калыму (у 2 знач.).

**КАЛЫ́СКА**, -і, *ДМ* -лы́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** Невялікая плеценая з лазы або драўляная люлька, у якой закалыхваюць дзіця (уст.). **2.** *перан.* Месца, дзе што-н. узнікла і атрымала развіццё (высок.). *Італія — к. опернага мастацтва.* **3.** Вісячы памост для падымання на вышыню рабочых, будматэрыялаў і інш. (спец.). *Фарбу паднялі на калысцы.* ‖ *прым.* **калы́скавы**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**КАЛЫХА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Песня, якую спяваюць, калышучы дзіця. *Матуліна к.*

**КАЛЫХА́ЦЦА**, -лышу́ся, -лы́шашся, -лы́шацца; -лышы́ся; *незак.* Мерна рухацца зверху ўніз ці з боку ў бок; гайдацца, хістацца. *К. на ветры. К. на вадзе. К. на арэлях.* ‖ *аднакр.* **калыхну́цца**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -ні́ся.

**КАЛЫХА́ЦЬ**, -лышу́, -лы́шаш, -лы́ша; -лышы́; *незак.* **1.** *каго-што.* Злёгку мерна рухаць зверху ўніз ці з боку ў бок; гайдаць, хістаць. *Вецер калыхаў галінку. Вагон калыхала* (безас.) *на паваротах.* **2.** *каго (што).* Гайдаючы калыску, спяваючы калыханку, усыпляць (дзіця). *К. дзіця.* **3.** *чым.* Рабіць чым-н. павольныя, мерныя рухі. *К. нагой.* ‖ *аднакр.* **калыхну́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **калыха́нне**, -я, *н.*

**КАЛЬВІ́ЛЬ**, -ю, *м.* Сорт паўднёвай яблыні з вялікімі ружова-жоўтымі яблыкамі, а таксама плады гэтай яблыні. ‖ *прым.* **кальві́льны**, -ая, -ае.

**КАЛЬÉ**, *нескл., н.* Каралі, упрыгожаныя каштоўнымі камянямі з падвескамі. *К. з брыльянтамі.*

**КА́ЛЬКА**, -і, *ДМ* кáльцы, *мн.* -і, кáлек, *ж.* **1.** Празрыстая папера або тканіна, пры дапамозе якой знімаюцца дакладныя копіі з чарцяжоў і малюнкаў. **2.** Копія чарцяжа, малюнка на такім матэрыяле. **3.** У мовазнаўстве: слова або выраз, утвораны па ўзоры слова або выразу з іншай мовы. *Слова «самавызначэнне» — к. рускага «самоопределение».*

**КАЛЬКАВА́ЦЬ**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; -кавáны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Зняць (знімаць) копію з чаго-н. пры дапамозе калькі (у 1 знач.). *К. чарцёж.* **2.** Стварыць (ствараць) слова або выраз па ўзоры іншамоўнага слова або выразу. *К. лацінскі выраз.* ‖ *зак.* **скалькава́ць**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; -кавáны.

**КАЛЬКУЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лявáны; *незак., што* (спец.). Вылічаць вартасць тавару, велічыню выдаткаў і інш. *К. кошт прадукцыі.* ‖ *зак.* **скалькулява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лявáны. ‖ *наз.* **калькуля́цыя**, -і, *ж.*

**КАЛЬКУЛЯ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Электронны прыбор для аўтаматычнага вылічэння. ‖ *прым.* **калькуля́тарны**, -ая, -ае.

**КАЛЬМА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Марскі малюск, мяса якога з'яўляецца каштоўным харчовым прадуктам. ‖ *прым.* **кальма́равы**, -ая, -ае.

**КАЛЬНУ́ЦЬ** *гл.* калоць.

**КАЛЬРА́БІ**, *нескл., ж.* Разнавіднасць капусты з патаўшчэннямі на сцябле. *Капуста к.*

**КАЛЬСÓНЫ**, -аў. Нацельныя мужчынскія штаны, споднікі, нагавіцы.

**КАЛЬЦАВА́ЦЬ**, -цýю, -цýеш, -цýе; -цýй; -цавáны; *незак.* **1.** *каго-што.* Меціць (жывёліну), надзяваючы кольцы на лапкі птушак або хвасты рыб для даследавання напрамку і хуткасці іх перамяшчэння, працяглы сці жыцця і інш. *К. пералётных птушак.* **2.** *што.* Рабіць кругавы зрэз кары або надзяваць на ствол дрэва драцяныя кольцы з мэтай уздзеяння на яго рост. **3.** *што.* Абмазваць ствол дрэва для аховы яго ад шкодных насякомых. ‖ *зак.* **закальцава́ць**, -цýю, -цýеш, -цýе; -цýй; -цавáны *і* **акальцава́ць**, -цýю, -цýеш, -цуе; -цýй; -цавáны. ‖ *наз.* **кальцава́нне**, -я, *н.*

**КАЛЬЦАВЫ́**, -áя, -óе. **1.** *гл.* кольца. **2.** Які мае выгляд кольца; кругавы. *К. маршрут.*

**КА́ЛЬЦЫЙ**, -ю, *м.* Хімічны элемент, мяккі серабрыста-белы метал. ‖ *прым.* **ка́льцыевы**, -ая, -ае. *Кальцыевыя солі.*

**КАЛЬЧА́К**, -á, *м.* (спец.). Група галін, лістоў, кветак, якія растуць на сцябле на адной вышыні. ‖ *прым.* **кальча́чны**, -ая, -ае.

**КАЛЬЧУ́ГА**, -і, *ДМ* -чýзе, *мн.* -і, -чýг, *ж.* (гіст.) Даўнейшы воінскі даспех у выглядзе кашулі з металічных кольцаў. ‖ *прым.* **кальчу́жны**, -ая, -ае.

**КАЛЮ́ГА**, -і, *ДМ* -лю́зе, *мн.* -і, -лю́г, *ж.* Выбітая коламі яма на дарозе, звычайна з вадой, граззю.

**КАЛЮ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Усякае колкае вастрыё, шып, тое, што колецца. *К. ружы.* **2.** *перан.* З'едлівая заўвага, вострая насмешка.

**КАЛЮ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае калючкі, з калючкамі. *К. дрот. Калючая ружа.* **2.** Які колецца, робіць уколы. *Калючая барада. К. ржэўнік.* **3.** *перан.* Са злой насмешкай, нядобры. *Калючае слова. К. позірк.* **4.** *перан.* Які непрыхільна, недаверліва ставіцца да ўсяго; нелюдзімы, злосны (пра чалавека). ‖ *наз.* **калю́часць**, -і, *ж.*

**КАЛЯ́**, *прыназ. з Р.* **1.** Ужыв. для абазначэння асобы, прадмета, месца, паблізу або вакол якіх адбываецца што-н., размяшчаецца хто-, што-н. *Дрэва расце к. акна. Турысты паселі к. вогнішча.* **2.** Ужыв. пры абазначэнні аб'екта, у дачыненні да якога адбываецца дзеянне, на які накіравана дзеянне. *К. кветак вельмі многа працы.* **3.** Ужыв. пры абазначэнні прыблізнай велічыні, меры чаго-н., пры ўказанні на пэўную пару, да якой падышоў ці падыходзіць час. *Хаце к. сарака гадоў. У мяшку к. двух пудоў мукі. Было к. поўначы.*

**КАЛЯВУ́ШНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца каля вуха. *Калявушная залоза.*

**КАЛЯДА́**, -ы́, *ДМ* -дзé, *ж.* Старадаўні (у 2 знач.) абрад хаджэння па хатах у калядныя вечары з віншаваннем, велічальнымі песнямі, а таксама песня, што спяваецца ў час гэтага абраду, і пачастункі, атрыманыя ад гаспадара за віншаванне і песні. ‖ *прым.* **каля́дны**, -ая, -ае. *Калядная песня.*

**КАЛЯДАВА́ЦЬ**, -дýю, -дýеш, -дýе; -дýй; *незак.* Хадзіць па дварах у калядныя вечары, віншаваць гаспадароў, спяваючы калядныя песні. ‖ *наз.* **калядава́нне**, -я, *н.*

**КАЛЯ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто калядуе, ходзіць па калядзе. *У акно пастукалі караднікі.*

**КАЛЯ́ДНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* (разм.). Калядная пара, калядная ноч.

**КАЛЯДО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *калязнік.*

**КАЛЯ́ДЫ**, -ля́д *і* **КО́ЛЯДЫ**, -ляд (з вялікай літары). Народнае зімовае свята дахрысціянскага паходжання, звязанае з перыядам зімовага сонцастаяння (адзначаецца 25 снежня па старым стылі і ў наступныя дні да Вадохрышча). *Посная куцця на Каляды.* ‖ *прым.* **каля́дны**, -ая, -ае. *Калядныя вечары.*

**КАЛЯЗЯМНЫ́**, -а́я, -о́е (спец.). Які знаходзіцца каля Зямлі, акружае Зямлю. *Калязямная атмасфера.*

**КАЛЯІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ляі́н, *ж.* **1.** Паглыблены след на дарозе ад колаў або санных палазоў. **2.** *перан.* Пра звычайны ход якіх-н. спраў, жыцця. *Выбіцца з каляіны.*

**КАЛЯКВЕ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Частка кветкі (чашачка і вяночак), якая акружае тычынкі і песцік.

**КАЛЯЛІТАРАТУ́РНЫ**, -ая, -ае. Які мае толькі знешнія адносіны да літаратуры, да літаратурнага асяроддзя. *Калялітаратурныя колы.*

**КАЛЯНАВУКО́ВЫ**, -ая, -ае. Які мае толькі знешнія адносіны да навукі, да навуковага асяроддзя. *Калянавуковыя функцыянеры.*

**КАЛЯНДА́Р**, календара́, *мн.* календары́, календаро́ў, *м.* **1.** Сістэма лічэння дзён у годзе. *Юліянскі к.* (старога стылю). *Грыгарыянскі к.* (новага стылю). **2.** Табліца або кніжка з пералікам усіх дзён года (з рознымі даведачнымі звесткамі). *Настольны к. Адрыўны к.* **3.** Размеркаванне па днях, месяцах асобных відаў дзейнасці. *К. занядкаў. К. футбольных гульняў.* ‖ *прым.* **каляндарны**, -ая, -ае. *К. год.*

**КАЛЯ́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Цвёрды, грубы навобмацак; нягнуткі. *Каляная тканіна.* **2.** *перан.* Жорсткі, калючы. *Каляныя крупінкі снегу.* ‖ *наз.* **каля́насць**, -і, *ж.*

**КАЛЯРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які афарбаваны або мае які-н. колер ці колеры (акрамя чорнага і белага). *Каляровае шкло. Каляровыя металы* (усе металы, акрамя жалеза і яго сплаваў). *К. фільм.* **2.** Пра людзей, якія належаць не да белай расы. *Каляровае насельніцтва.* ‖ *наз.* **каляро́васць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**КАЛЯСАРДЭ́ЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які знаходзіцца вакол сэрца, абкружае яго. *Калясардэчная сумка.*

**КАЛЯСІ́ЦЬ**, каляшу́, калясі́ш, калясі́ць; калясі́м, калесіце́, калясяць; *незак.* (разм.). Многа ездзіць, раз'язджаць у розных напрамках. *К. па ўсёй краіне.*

**КАЛЯ́СКА**, -і, *ДМ* -сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** Чатырохколавы экіпаж на рысорах з адкідным верхам. **2.** Маленькая ручная павозка, звычайна крытая, для катання дзяцей; вазок. *Дзіцячая к.* **3.** Невялікая павозка спецыяльнага прызначэння. *Матацыкл з каляскай.* ‖ *прым.* **каля́сачны**, -ая, -ае.

**КАЛЯЯ́**, -і́, *мн.* кале́і *і* (з *ліч.* 2, 3, 4) каляі́, кале́й *і* кале́яў, *ж.* **1.** Чыгуначны пуць з дзвюх паралельных рэек. *Шырокая к.* **2.** Тое, што і *каляіна* (у 1 знач.).

**КАМА́НДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ма́нд *і* -аў, *ж.* **1.** Кароткі вусны загад па ўстаноўленай форме. *Раздалася к.: «Адбой!»* **2.** Камандаванне якой-н. вайсковай часцю. *Атрад пад чыёй-н. камандай.* **3.** Атрад, вайсковае падраздзяленне, а таксама часова выдзеленая вайсковая часць спецыяльнага прызначэння. *Сапёрная к. Пажарная к.* **4.** Асабовы састаў, экіпаж судна. *К. з 20 чалавек.* **5.** Спартыўны калектыў. *Футбольная к.* **6.** Калектыў аднадумцаў. *Працаваць у камандзе.* ◊ **Далажыць па камандзе** — у ваенных: далажыць непасрэднаму начальніку. **Як па камандзе** — разам, дружна. ‖ *прым.* **кама́ндны**, -ая, -ае (да 1, 3—5 знач.).

**КАМА́НДАВАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* камандаваць. **2.** *зб.* Асобы, якія стаяць на чале войска, вайсковых падраздзяленняў. *Вярхоўнае к. К. дывізіі.*

**КАМА́НДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; *незак.* **1.** Вымаўляць словы каманды, аддаваць каму-н. каманду. **2.** *кім-чым.* Быць камандзірам. *К. палком. К. парадам.* **3.** *перан., кім-чым, над кім-чым* і *без дап.* Загадваць, аддаваць распараджэнні (разм.). *Ніхто не любіць, каб ім камандавалі.* ‖ *зак.* **скама́ндаваць**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй (да 1 і 3 знач.) *і* **закама́ндаваць**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **кама́ндаванне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**КАМАНДЗІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Начальнік вайсковай часці, падраздзялення, ваеннага судна. *К. палка. К. крэйсера.* **2.** Пра таго, хто любіць камандаваць, аддаваць загады (разм.). *Развялося тут камандзіраў!* ‖ *прым.* **камандзі́рскі**, -ая, -ае.

**КАМАНДЗІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Адправіць (адпраўляць) куды-н. са службовым даручэннем. *К. на з'езд пісьменнікаў.* ‖ *наз.* **камандзіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж. і* **камандзірава́нне**, -я, *н.*

**КАМАНДЗІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* **1.** *гл.* камандзіраваць. **2.** Службовае заданне, звязанае з паездкай куды-н. *Атрымаць камандзіроўку.* **3.** Паездка для выканання такога задання. *Паехаць у камандзіроўку.* **4.** Пасведчанне аб такім заданні (разм.). *Выпісаць камандзіроўку.* ‖ *прым.* **камандзіро́вачны**, -ая, -ае (да 2—4 знач.). *Атрымаць камандзіровачныя* (наз.).

**КАМАНДЗІ́РСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* камандзір. **2.** *перан.* Уласцівы камандзіру, начальніцкі. *К. голас. К. тон.*

**КАМА́НДНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* каманда. **2.** Камандзірскі, які мае адносіны да камандавання. *К. састаў.* ○ **Камандная вышыня** — мясцовасць, якая ўзвышаецца над наваколлем і дае войскам рад пераваг перад праціўнікам.

**КАМАНДО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вышэйшае званне ў рыцарскім ордэне, а таксама асоба, якая мела такое званне. ‖ *прым.* **камандо́рскі**, -ая, -ае.

**КАМА́НДУЮЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Начальнік буйнога вайсковага злучэння. *К. арміяй.*

**КАМА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Маленькае двухкрылае насякомае-крывасмок з тонкім цельцам і доўгім хабатком. ◊ **Камар носа не падточыць** — зроблена вельмі добра, што не прыдзярэшся. ‖ *прым.* **камары́ны**, -ая, -ае.

**КАМАТО́ЗНЫ** *гл.* кома[1].

**КАМА́ШЫ**, -аў, *адз.* -ма́ш, -а, *м.* Тое, што і *гамашы.*

**КАМБАДЖЫ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -джы́ец, -джы́йца, *м.* Насельніцтва Камбоджы. ‖ *ж.* **камбаджы́йка**, -і, *ДМ* -джы́йцы, *мн.* -і, -джы́ек. ‖ *прым.* **камбаджы́йскі**, -ая, -ае.

**КАМБА́ЙН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Перасовачная або самаходная машына, якая адначасова выконвае работу некалькіх машын або механізмаў. *Збожжаўборачны к. Горны к.* ‖ *прым.* **камба́йнавы**, -ая, -ае. *К. агрэгат.*

**КАМБА́ЙНЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Механізатар, які працуе на сельскагаспадарчым камбайне. ‖ *прым.* **камба́йнерскі**, -ая, -ае.

**КА́МБАЛА**, -ы, *ж.* Прамысловая марская рыба са сплюснутым целам з вачамі на адным баку. ‖ *прым.* **ка́мбалавы**, -ая, -ае. *Сямейства камбалавых* (наз.).

**КАМБІКО́РМ**, -у, *м.* Скарачэнне: камбінаваны корм; прыгатаваная ў пэўных прапорцыях сумесь сухіх кармоў для жывёлы. ‖ *прым.* **камбіко́рмавы**, -ая, -ае. *Камбікормавая прамысловасць.*

**КАМБІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *незак.* **1.** *што.* Злучаць, спалучаць розныя (але аднародныя) элементы ў пэўным парадку ў адно цэлае (у 1 знач.). *К. розныя адценні фарбаў.* **2.** Рабіць камбінацыю (у 2 знач.; разм.). ‖ *зак.* **скамбінава́ць**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е, -ну́й; -нава́ны. ‖ *наз.* **камбінава́нне**, -я, *н.*

**КАМБІНА́Т**, -а, *М* -на́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аб'яднанне прамысловых прадпрыемстваў розных вытворчых галін, а таксама аб'яднанне дробных прадпрыемстваў. *К. бытавых паслуг. Швейны к.* ‖ *прым.* **камбіна́цкі**, -ая, -ае *і* **камбіната́ўскі**, -ая, -ае.

**КАМБІНА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто схільны да камбінацый (у 2 знач.), які ўмее дасягаць чаго-н. рознымі спосабамі. ‖ *ж.* **камбіна́тарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **камбіна́тарскі**, -ая, -ае.

**КАМБІНАТО́РНЫ**, -ая, -ае (спец.). Заснаваны на камбінаванні. *К. аналіз* (у матэматыцы). *Камбінаторнае змяненне гукаў.*

**КАМБІНАТО́РЫКА**, -і, *ДМ* -рыцы, *ж.* Раздзел дыскрэтнай матэматыкі, які вывучае, колькі магчымых злучэнняў элементаў існуе ў зададзеным канечным мностве.

**КАМБІНА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Спалучэнне, злучэнне, узаемна абумоўленае размяшчэнне чаго-н. *К. лічбаў. К. фарбаў.* **2.** Складаная задума, сістэма прыёмаў для дасягнення якой-н. мэты. *Хітрая к. Шахматная к.* ‖ *прым.* **камбінацы́йны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**КАМБІНЕЗО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Суцэльны касцюм з курткі і штаноў. ‖ *прым.* **камбінезо́нны**, -ая, -ае.

**КА́МБУЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Кухня на судне. ‖ *прым.* **ка́мбузны**, -ая, -ае.

**КАМВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да гатункаў гладкіх тонкіх шарсцяных тканін і вырабаў з іх. *Камвольныя тканіны. К. камбінат.*

**КАМЕ́ДЗЬ**, -і, *ж.* (спец.). Густы клейкі сок некаторых раслін, які выкарыстоўваецца ў тэхніцы і медыцыне. ‖ *прым.* **каме́дны**, -ая, -ае.

**КАМЕ́ДЫЯ**, -і, *мн.* -і, -дый, *ж.* **1.** Драматычны твор з вясёлым, забаўным або сатырычным сюжэтам, а таксама спектакль або фільм па сцэнарыі такога твора. *Музычная к.* **2.** *перан.* Крывадушныя паводзіны, разыгрыванне якой-н. ролі, сцэны з пэўнай мэтай. *Што за к.! Гаворы як ёсць!* ◊ **Ламаць (разыгрываць, строіць) камедыю** (разм., неадабр.) — крывадушнічаць, прытварацца. ‖ *прым.* **камеды́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **камі́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Камедыйны акцёр. Камічная опера.*

**КАМЕДЫЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *комік* (у 1 знач.). **2.** *перан.* Прытворшчык, крывадушнік. ‖ *ж.* **камедыя́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **камедыя́нцкі**, -ая, -ае.

**КАМЕДЫЯ́НЦТВА**, -а, *н.* Прытворства, крыўлянне.

**КАМЕ́ЛІЯ**, -і, *мн.* -і, -лій, *ж.* Дэкаратыўная расліна сямейства чайных з вечназялёным лісцем і буйнымі прыгожымі белымі або чырвонымі кветкамі.

**КАМЕ́ЛЬ**, камля́, *мн.* камлі́, камлёў, *м.* **1.** Ніжняя патоўшчаная частка дрэва, расліны, якая прылягае да кораня. **2.** Перавязаны канец снапа, веніка і пад. *К. снапа.* ‖ *прым.* **камлёвы**, -ая, -ае. *Камлёвая частка дрэва.*

**КАМЕНДА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Начальнік войск крэпасці або ўмацаванага раёна. **2.** Вайсковы начальнік, які наглядае за дысцыплінай, парадкам і правільным нясеннем службы ў гарнізоне. *К. горада. К. лагера.* **3.** Асоба, адказная за які-н. грамадскі будынак. *К. інтэрната.* ‖ *прым.* **каменда́нцкі**, -ая, -ае. ○ **Камендацкая гадзіна** — забарона без спецыяльнага дазволу з'яўляцца на вуліцы населенага пункта ў пэўны час пры аб'яўленні ваеннага або асаднага становішча.

**КАМЕНДАТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -тур, *ж.* Установа, якую ўзначальвае камендант (у 1 і 2 знач.), а таксама памяшканне, у якім знаходзіцца такая ўстанова.

**КАМЕНДО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Матрос-артылерыст. ‖ *прым.* **камендо́рскі**, -ая, -ае.

**КАМЕНЕ...** (а таксама **каменя...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да каменя (у 1 і 3 знач.), напр.: *каменеапрацоўка, каменеапрацоўчы, каменедрабілка, каменеадлівальны* (які мае адносіны да адліўкі з каменя), *каменеўборачны, каменешліфавальны, каменевыдзяляльны, каменеўтварэнне;* 2) які змяшчае ў сабе камень (у 1 знач.), напр., *каменебетон;* 3) падобны на камень (у 1 знач.), напр., *каменепадобны.*

**КАМЕНЕДРАБІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Машына для драблення камення і іншых горных парод.

**КА́МЕНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Печ у лазні без коміна, складзеная з камення.

**КАМЕННАВУ́ГАЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да каменнага вугалю. *К. басейн.*

**КАМЕ́ННЕ**, -я, *н., зб.* Камяні. *Збіраць к. ў кучы.*

**КАМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* камень. **2.** *перан.* Нерухомы, застылы. *К. выраз твару.* **3.** *перан.* Нячулы, раўнадушны. *Каменнае сэрца.* **4.** Ужыв. як састаўная частка ў назвах некаторых раслін, матэрыялаў і пад. (спец.). *К. вугаль. Каменная соль.*

**КАМЕНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны *і* **КАМЕНЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* Даць (даваць) каментарыі да чаго-н. *К. артыкул.* ‖ *зак.* **пракаментава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; ту́й; -тава́ны *і* **пракаменці́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**КАМЕНТА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** звычайна *мн.* Тлумачэнні да якога-н. тэксту. *Збор твораў Якуба Коласа з каментарыямі.* **2.** *мн.* Разважанні, тлумачальныя і крытычныя заўвагі аб чым-н. *Каментарыі карэспандэнта. Каментарыі не патрэбны.*

**КАМЕНТА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая каментуе што-н. *К. спартыўных перадач. К. тэксту.* ‖ *прым.* **камента́тарскі**, -ая, -ае.

**КА́МЕНЬ**, -ю *і* -я, *Т* -ем, *мн.* камяні́, камянёў, *м.* **1.** -ю, *зб.* Цвёрдая горная парода (за выключэннем металу) у выглядзе суцэльнай масы або асобных кавалкаў. *Вуліца выбрукавана каменем. Будаўнічы к.* **2.** -я. Асобны кавалак такой пароды. *Збіраць камяні ля дарогі. Каштоўны к.* **3.** *мн.* Цвёрдыя саляныя і іншыя ўтварэнні ў некаторых унутраных органах. *Камяні ў печані.* ◊ **Камень на сэрцы** — душэўны цяжар, гора. **Каменя на камені не пакінуць** — разбурыць усё. **Кідаць каменем** *у каго* — асуджаць, ганьбаваць каго-н. **Найшла (наскочыла) каса на камень** — сутыкнуліся розныя непрымірымыя погляды, інтарэсы, характары. **Насіць камень за пазухай** — мець злосць на каго-н., быць гатовым адпомсціць каму-н. **Як камень у ваду** — бясследна прапасці, знікнуць. ‖ *памянш.-ласк.* **каме́ньчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 2 знач.). ◊ **Кідаць каменьчыкі ў агарод** *чый* — намякаць на што-н., неадабральна адзывацца пра каго-н. ‖ *прым.* **каме́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *К. падмурак.* ◊ **Каменны мяшок** — турма.

**КАМЕНЯ...** (*гл.* **камене...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «камене...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *каменябітны, каменявар, каменяліты, каменяломня, каменярэз, каменячосны.*

**КАМЕНЯЛО́МНЯ**, -і, *мн.* -і, -мень, *ж.* Месца, дзе здабываецца і апрацоўваецца камень. ‖ *прым.* **каменяло́мны**, -ая, -ае. *Каменяломныя работы.*

**КАМЕНЯЧО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочы, які абчэсвае камяні.

**КА́МЕРА**, -ы, *мн.* -ы, -мер, *ж.* **1.** Ізаляванае памяшканне спецыяльнага прызначэння ў некаторых установах. *Дэзынфекцыйная к. Турэмная к.* **2.** Закрытая прастора ў сярэдзіне якога-н. прыбора, машыны, збудавання, а таксама закрытая поласць унутры якога-н. органа. *Фатаграфічная к. К. шлюза. К. згарання ў рухавіку. К. сэрца.* **3.** Фатаграфічны, кінематаграфічны ці тэлевізійны здымачны апарат (разм.). *Здымаць скрытай камерай.* **4.** Унутраная гумавая абалонка шыны, мяча, якая напаўняецца паветрам. ‖ *прым.* **ка́мерны**, -ая, -ае (да 2 і 4 знач.; спец.).

**КАМЕРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які адносіцца да лабараторнай апрацоўкі матэрыялаў, сабраных у час экспедыцый. *Камеральныя работы геолагаў.*

**КАМЕРГЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У некаторых манархічных дзяржавах: прыдворны чын старэйшага рангу, а таксама асоба, якая мае такі чын. ‖ *прым.* **камерге́рскі**, -ая, -ае.

**КАМЕРДЫ́НЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Слуга пры гаспадары ў багатым дваранскім доме, лакей. ‖ *прым.* **камерды́нерскі**, -ая, -ае.

**КА́МЕРНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* камера. **2.** Пра музычны твор: які прызначаны для аднаго або некалькіх выканаўцаў, абмежаванай колькасці інструментаў і выконваецца ў невялікай канцэртнай зале. *Камерная музыка.* **3.** Які выконвае такія творы. *К. аркестр. К. спявак.* **4.** Прызначаны для вузкага кола слухачоў, гледачоў. *Камернае мастацтва. К. голас.*

**КАМЕРСА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца гандлем, камерцыяй. ‖ *прым.* **камерса́нцкі**, -ая, -ае.

**КАМЕРТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Інструмент у выглядзе сталёвай вілкі, які пры ўдары ўтварае гук пэўнай пастаяннай вышыні і выкарыстоўваецца пры настройцы музычных інструментаў, у харавых спевах. ‖ *прым.* **камерто́нны**, -ая, -ае.

**КАМЕРЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* камерцыя. **2.** Разлічаны на прыбытак, даход. *К. разлік.* **3.** Звязаны з гандлем па павышаных цэнах. *Камерцыйныя цэны.*

**КАМЕ́РЦЫЯ**, -і, *ж.* Гандаль, гандлёвыя аперацыі. ‖ *прым.* **камерцы́йны**, -ая, -ае. *Камерцыйныя аперацыі.*

**КАМЕРЦЫЯЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Ажыццявіць (ажыццяўляць) камерцыялізацыю. *К. мастацтва.*

**КАМЕРЦЫЯЛІЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Увядзенне рыначных адносін; пераход на камерцыйную аснову.

**КАМЕРЫ́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Пакаёўка, служанка пры пані ў багатым дваранскім доме.

**КА́МЕР-Ю́НКЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У некаторых манархічных дзяржавах: малодшы прыдворны чын, а таксама асоба, якая мае гэты чын. ‖ *прым.* **ка́мер-ю́нкерскі**, -ая, -ае.

**КАМЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -ме́це, *мн.* -ы, -ме́т, *ж.* **1.** Нябеснае цела, якое мае выгляд абкружанай туманнай абалонкай яркай светлай плямы з вузкай паласой святла ў форме хваста. **2.** Рачное быстраходнае пасажырскае судна на падводных крылах (разм.). ‖ *прым.* **каме́тны**, -ая, -ае.

**КАМЕ́Я**, -і, *мн.* -і, -ме́й, *ж.* Упрыгожанне з рэльефнай разьбой са слаістага разнакалернага каменя або ракавіны (у брошках, пярсцёнках). *Пярсцёнак з камеяй.*

**КАМЗО́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Даўнейшая мужчынская верхняя вопратка, звычайна без рукавоў. ‖ *прым.* **камзо́льны**, -ая, -ае.

**КАМІ́ЗМ**, -у, *м.* Камічнае, смешнае ў чым-н., гумар. *К. сітуацыі.*

**КАМІЗЭ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* Кароткая мужчынская і жаночая адзежына без рукавоў і каўняра, якую надзяваюць на сарочку або блузку. ‖ *прым.* **камізэ́лечны**, -ая, -ае.

**КАМІЛА́ЎКА**, -і, *ДМ* -ла́ўцы, *мн.* -і, -ла́вак, *ж.* Высокі цыліндрычны галаўны ўбор — ганаровая ўзнагарода праваслаўным святарам.

**КАМІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пакаёвая печ з шырокай адкрытай топкай. **2.** Электрычны прыбор для абагрэву пакоя. ‖ *прым.* **камі́нны**, -ая, -ае.

**КАМІ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Выемка ў печы, дзе раскладалі агонь для асвятлення хаты. *На камінку гарэў смольны корч.*

**КАМІНА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чысцільшчык комінаў. ‖ *прым.* **каміна́рскі**, -ая, -ае.

**КАМІСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* і *незак., каго (што)* (разм.). Вызваліць (вызваляць) на медыцынскай камісіі ад ваеннай службы, работы і пад. па стане здароўя. *К. раненага.* ‖ *наз.* **камісава́нне**, -я, *н.*

**КАМІСА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Кіруючая асоба з грамадска-палітычнымі або адміністрацыйнымі функцыямі (у перыяд 1918—1942 гг. — палітычны кіраўнік воінскай часці.). *Брыгадны к.* **2.** Асоба, якая ўзначальвае ваенны камісарыят. *Ваенны к.* **3.** У студэнцкіх будаўнічых атрадах: асоба, якая адказвае за арганізацыйна-выхаваўчую работу. ‖ *прым.* **каміса́рскі**, -ая, -ае.

**КАМІСАРЫЯ́Т**, -а, *М* -рыя́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Назва некаторых дзяржаўных і адміністрацыйных устаноў, на чале якіх стаіць камісар. *Народны к. Ваенны к.* ‖ *прым.* **камісарыя́цкі**, -ая, -ае.

**КАМІСІЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Камісійны магазін.

**КАМІ́СІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* **1.** Група асоб або орган з групы асоб са спецыяльнымі паўнамоцтвамі, што ўтвараецца напастаянна або часова для выканання пэўных задач. *Прыёмная к. Рэвізійная к.* **2.** Даручэнне, якое выконваецца за пэўнае ўзнагароджанне (звычайна звязанае з купляй або продажам). *Браць тавар на камісію.* ‖ *прым.* **камісі́йны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *К. магазін. Атрымаць камісійныя* (наз.).

**КАМІСІЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пасрэднік у гандлёвых здзелках. ‖ *прым.* **камісіяне́рскі**, -ая, -ае.

**КАМІТЭ́Т**, -а, *М* -тэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Калегіяльны выбарны орган, які кіруе якой-н. работай, а таксама ўстанова спецыяльнага прызначэння. *Выканаўчы к. К. па экалогіі.* ‖ *прым.* **камітэ́цкі**, -ая, -ае.

**КАМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* камедыя. **2.** Які выклікае смех, забаўны. *К. сюжэт. К. выгляд.* ‖ *наз.* **камі́чнасць**, -і, *ж.*

**КАМЛІ́СТЫ**, -ая, -ае. З тоўстым камлём. *К. дуб.* ‖ *наз.* **камлі́стасць**, -і, *ж.*

**КАМЛО́Т**, -у, *М* -ло́це, *м.* (спец.). Грубая шарсцяная ці баваўняная тканіна. ‖ *прым.* **камло́тавы**, -ая, -ае.

**КАМЛЫ́ГА**, -і, *ДМ* -лы́зе, *мн.* -і, -лы́г, *ж.* Вялікі абломак якой-н. цвёрдай масы. *К. зямлі.* ‖ *прым.* **камлы́гавы**, -ая, -ае.

**КАМЛЮ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Ніжняя частка ствала дрэва; камель.

**КАМЛЮКАВА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** З тоўстым, моцным ствалом; камлісты. *К. дуб.* **2.** *перан.* Плячысты, прысадзісты (пра чалавека; разм.). ‖ *наз.* **камлюкава́тасць**, -і, *ж.*

**КАМО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -мо́д, *ж.* Прадмет мэблі ў выглядзе невысокай шафы з шуфлядамі для бялізны, розных хатніх рэчаў. ‖ *прым.* **камо́дны**, -ая, -ае.

**КАМО́РА**, -ы, *мн.* -ы, -мо́р, *ж.* **1.** Халоднае памяшканне пры хаце для захоўвання запасаў ежы, адзення і іншых хатніх рэчаў. *Злажыць сала і мяса ў камору.* **2.** Бакоўка ў вясковай хаце, дзе спяць. *Дзеці спалі ў каморы.* **3.** Кантрольны пункт лясніцтва (уст.). ‖ *памянш.* **камо́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (да 1 і 2 знач.); *прым.* **камо́рачны**, -ая, -ае *і* **камо́рны**, -ая, -ае.

**КАМО́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Спецыяліст па межаванні і землеўпарадкаванні. ‖ *прым.* **камо́рніцкі**, -ая, -ае. *К. абмер зямлі.*

**КАМО́РНІЦТВА**, -а, *н.* Занятак каморніка; каморніцкая справа.

**КАМПАЗІ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтар музычных твораў. ‖ *прым.* **кампазі́тарскі**, -ая, -ае.

**КАМПАЗІ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Будова, суадносіны і ўзаемнае размеркаванне асобных частак, элементаў. *К. рамана. К. карціны. К. сімфоніі.* **2.** Мастацкі (музычны, жывапісны, скульптурны і інш.) твор, які з'яўляецца арыгінальным спалучэннем асобных частак, элементаў. *Скульптурная к. Сюжэтная к.* **3.** Тэорыя стварэння музычных твораў. *Клас кампазіцыі.* **4.** Твор, які складаецца з літаратурнай і музычнай частак, аб'яднаных адной тэмай, сюжэтам. *Літаратурна-музычная к.* ‖ *прым.* **кампазіцы́йны**, -ая, -ае.

**КАМПА́КТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Сціснуты шчыльна, без прамежкаў. *Кампактная маса.* **2.** Які займае мала месца пры вялікай змяшчальнасці. *Кампактная сумка.* ‖ *прым.* **кампа́ктнасць**, -і, *ж.*

**КАМПАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *незак., што* (кніжн.). Складаць цэлае з частак. *К. карціну. К. матэрыял даследавання.* ‖ *зак.* **скампанава́ць**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; ну́й, -нава́ны. ‖ *наз.* **кампанава́нне**, -я, *н. і* **кампано́ўка**, -і, *ДМ* -но́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **кампано́вачны**, -ая, -ае.

**КАМПАНЕ́ЙСКІ**[1], -ая, -ае (разм.). Які любіць падтрымліваць кампанію (у 1 знач.). *К. чалавек.*

**КАМПАНЕ́ЙСКІ**[2], -ая, -ае (разм.). Пра непланамерную арганізацыю работы: бессістэмны, выпадковы, які праводзіцца нерэгулярна, рыўкамі. *К. метад работы.*

**КАМПАНЕ́ЙШЧЫНА**, -ы, *ж.* (разм., неадабр.). Пра бессістэмную, нерэгулярную арганізацыю грамадскай або вытворчай работы.

**КАМПАНЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Састаўная частка чаго-н. ‖ *прым.* **кампане́нтны**, -ая, -ае. *К. аналіз.*

**КАМПА́НІЯ**[1], -і, *мн.* -і, -ній, *ж.* **1.** Група асоб, якія разам праводзяць вольны час. *Сабраць кампанію. У вясёлай кампаніі з кім-н.* **2.** Прамысловае, гандлёвае, транспартнае і пад. прадпрыемствы, створанае звычайна групай прадпрымальнікаў. *Акцыянерная к. Нафтавая к.* ◊ **За кампанію** — разам (заадно) з іншымі; у знак салідарнасці.

**КАМПА́НІЯ**[2], -і, *мн.* -і, -ній, *ж.* **1.** Сукупнасць ваенных аперацый, аб'яднаных агульнай стратэгічнай мэтай. *Руска-японская к.* **2.** Перыяд знаходжання карабля ў плаванні або ваенных аперацый флоту. **3.** Мерапрыемствы для ажыццяўлення чарговай важнай грамадска-палітычнай або гаспадарчай задачы. *Выбарчая к. Пасяўная к.*

**КАМПАНЬЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, хто складае кампанію каму-н., разам з кім-н. удзельнічае ў чым-н. **2.** Член прамысловай або гандлёвай кампаніі; сууладальнік. ‖ *ж.* **кампаньёнка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **кампаньёнскі**, -ая, -ае (разм.).

**КАМПАНЬЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* кампаньён. **2.** Жанчына,

якую наймалі ў панскі дом для забаўлянняі суправаджэння куды-н. (уст.).

**КАМПАРАТЫ́Ў**, -ты́ва, *мн.* -ты́вы, -ты́ваў, *м.* (спец.). Граматычная катэгорыя прыметніка і прыслоўя, якая абазначае большую ступень праяўлення прыметы ў параўнанні з той жа прыметай, названай у звычайнай ступені (напр., *лепшы, лепш, цяплейшы, цяплей*).

**КАМПАСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што.* Пераварыць (перативараць) у кампост. ‖ *зак.* **закампастава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *наз.* **кампастава́нне**, -я, *н.*

**КАМПАСЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., што.* Прабіваць пры дапамозе кампосцера. *К. білет.* ‖ *зак.* **пракампасці́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны *і* **закампасціраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны. ‖ *наз.* **кампасці́раванне**, -я, *н.*

**КАМПЕ́НДЫУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Сціслы выклад асноўных палажэнняў якой-н. навукі, даследавання і пад.

**КАМПЕНСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* **1.** Аплаціць (аплачваць), пакрыць (пакрываць) выдаткі, страты, чужую працу і інш. *К. страты. К. згублены час.* **2.** Ураўнаважыць (ураўнаважваць), замяніць (замяняць) чым-н.

**КАМПЕНСА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Аплата, узнагарода за якую-н. работу; пакрыццё выдаткаў. *Грашовая к.* **2.** Ураўнаважанне, выраўноўванне ў арганізме парушаных функцый (спец.). *К. пароку сэрца.* ‖ *прым.* **кампенсацы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **кампенсато́рны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Кампенсацыйныя выплаты. Кампенсаторныя здольнасці арганізма.*

**КАМПЕТЭ́НТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Дасведчаны, аўтарытэтны ў якой-н. галіне. *К. спецыяліст. Кампетэнтная думка.* **2.** Які мае пэўныя паўнамоцтвы. *Перадаць дакументы ў кампетэнтную арганізацыю.* ‖ *наз.* **кампетэ́нтнасць**, -і, *ж.*

**КАМПЕТЭ́НЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Дасведчанасць у якой-н. справе, у якіх-н. пытаннях. **2.** Сукупнасць правоў і абавязкаў той ці іншай установы або адказнай асобы (спец.). *К. праваахоўных органаў. Гэта ўжо не мая к.*

**КАМПІЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Рабіць кампіляцыю. *К. чужыя думкі.* ‖ *зак.* **скампілява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны. ‖ *прым.* **кампіляцы́йны**, -ая, -ае.

**КАМПІЛЯ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто займаецца кампіляцыяй. ‖ *прым.* **кампіля́тарскі**, -ая, -ае.

**КАМПІЛЯТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Заснаваны на кампіляцыі. *Кампілятыўная работа.* ‖ *наз.* **кампілятыўнасць**, -і, *ж.*

**КАМПІЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (кніжн.). Праца, заснаваная на выкарыстанні ўжо вядомых прац і чужых вынікаў без самастойнага даследавання першакрыніц і вывадаў, а таксама сама работа, зробленая такім спосабам. *К. чужых думак. Літаратурная к.*

**КАМПЛЕ́КТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Поўны набор, састаў каго-, чаго-н. *К. мэблі. К. сурвэтак.* ‖ *прым.* **камплéктны**, -ая, -ае.

**КАМПЛЕКТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што.* Дапаўняць да камплекта, складаць камплект чаго-н. *К. бібліятэку.* ‖ *зак.* **скамплектава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны *і* **укамплектава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *наз.* **камплектава́нне**, -я, *н. і* **камплекто́ўка**, -і, *ДМ* -тоўцы, *ж.* ‖ *прым.* **камплекто́вачны**, -ая, -ае.

**КАМПЛЕ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* Целасклад чалавека. *Чалавек магутнай камплекцыі.*

**КАМПЛІМЕ́НТ**, -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пахвальны водзыў, прыемныя словы. *Сказаць каму-н. к.* ‖ *прым.* **кампліментáрны**, -ая, -ае (кніжн.).

**КАМПО́СТ**, -у, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Угнаенне, якое атрымліваецца ад змешвання розных адходаў расліннага, жывёльнага або мінеральнага паходжання з зямлёй. ‖ *прым.* **кампо́ставы**, -ая, -ае.

**КАМПО́СЦЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апарат для прабівання ўмоўных знакаў кантролю на пасажырскіх білетах і іншых дакументах. ‖ *прым.* **кампо́сцерны**, -ая, -ае.

**КАМПО́Т**, -у, *М* -по́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Салодкае пітво са звараных у вадзе ягад, садавіны. ‖ *прым.* **кампо́тны**, -ая, -ае.

**КАМПРАМЕТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., каго-што.* Ставіць у няёмкае становішча, нясlaвіць каго-н. чым-н. ‖ *зак.* **скампраметава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *наз.* **кампраметáцыя**, -і, *ж. і* **кампраметава́нне**, -я, *н.*

**КАМПРАМІ́С**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пагадненне з кім-н. на аснове ўзаемных уступак. *Пайсці на к.* ‖ *прым.* **кампрамі́сны**, -ая, -ае. *Кампраміснае рашэнне.*

**КАМПРЭ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Змочаная вадой або лекавым растворам павязка на хворае месца. *Пакласці к. на руку.* ‖ *прым.* **кампрэ́сны**, -ая, -ае.

**КАМПРЭ́САР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Машына для сціскання паветра, пары, газаў. *Кіслародны к.* ‖ *прым.* **кампрэ́сарны**, -ая, -ае.

**КАМП'Ю́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Электроннае прыстасаванне для апрацоўкі і захоўвання вялікага аб'ёму інфармацыі (у 1 знач.) з дапамогай спецыяльных камп'ютарных праграм. *Персанальны к. Сучасны к.* ‖ *прым.* **камп'ю́тарны**, -ая, -ае. *Камп'ютарная праграма. Камп'ютарная сістэма.*

**КАМП'ЮТАРЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак.* Ажыццявіць (ажыццяўляць) камп'ютарызацыю. *К. навучальныя ўстановы.*

**КАМП'ЮТАРЫЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Шырокае выкарыстанне камп'ютараў ва ўсіх сферах жыцця грамадства, перавод працаёмкіх аперацый і працэсаў на камп'ютарную аснову. *Праграма камп'ютарызацыі навукі.*

**КАМСА́**, -ы́, *ж.* Тое, што і *хамса.*

**КАМСАМО́Л**, -а, *м.* Скарачэнне: Камуністычны саюз моладзі — грамадская арганізацыя моладзі ў СССР (1918—1991 гг.). ‖ *прым.* **камсамо́льскі**, -ая, -ае. *К. білет. Камсамольская арганізацыя.*

**КАМСАМО́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* Член камсамола. ‖ *ж.* **камсамо́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **камсамо́льскі**, -ая, -ае.

**КАМСО́РГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Камсамольскі арганізатар — выбарны кіраўнік пярвічнай камсамольскай арганізацыі. ‖ *прым.* **камсо́ргаўскі**, -ая, -ае (разм.).

**КАМУ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -му́н, *ж.* **1.** Калектыў людзей, якія аб'ядналіся для супольнага жыцця пры абагуленні маёмасці і працы. *Жыць камунай. Працоўная к.* **2.** Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў некаторых краінах. ○ **Парыжская камуна** — рэвалюцыйны ўрад паўстанцкіх працоўных мас у Парыжы ў 1871 г.; першая спроба ўстанаўлення дыктатуры пралетарыяту. ‖ *прым.* **камуна́льны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Камунальныя выбары.*

**КАМУНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* камуна. **2.** Які мае адносіны да гарадской гаспадаркі. *Камунальныя паслугі.* ○ **Камунальная кватэра** — кватэра, у якой жывуць некалькі сямей.

**КАМУНА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Член камуны (у 1 знач.). **2.** Удзельнік Парыжскай камуны. ‖ *прым.* **камуна́рскі**, -ая, -ае.

**КАМУНІ́ЗМ**, -у, *м.* Грамадска-эканамічная фармацыя, заснаваная на пабудове бяскласавага грамадства з агульнай уласнасцю на сродкі вытворчасці і з поўнай сацыяльнай роўнасцю ўсіх членаў грамадства, а таксама навуковая тэорыя стварэння такой фармацыі. *Навуковы к.* ○ **Ваенны камунізм** — часовая эканамічная палітыка савецкай улады ў перыяд Грамадзянскай вайны (1918—1920 гг.) і ваеннай інтэрвенцыі. ‖ *прым.* **камуністы́чны**, -ая, -ае. *К. светапогляд. Камуністычная партыя.*

**КАМУНІКА́БЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, з якім лёгка ўстанаўліваць кантакты і дамаўляцца аб чым-н. *К. чалавек.* ‖ *наз.* **камуніка́бельнасць**, -і, *ж.*

**КАМУНІКА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** часцей *мн.* Шляхі зносін, лініі сувязі, а таксама энерга-, цепла-, газа- і водазабеспячэнне. *Водныя камунікацыі. Падземныя камунікацыі.* **2.** Паведамленне, абмен думкамі, перадача інфармацыі пры дапамозе мовы (кніжн.). *Вусная мова як адзін са сродкаў камунікацыі.* ‖ *прым.* **камунікацы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **камунікаты́ўны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Камунікацыйныя лініі. Камунікатыўныя функцыі.*

**КАМУНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Член камуністычнай партыі. ‖ *ж.* **камуні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**КАМУТА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыбор для змянення напрамку або пераключэння электрычнага току. **2.** Род мясцовай тэлефоннай станцыі з ручным або аўтаматычным злучэннем тэлефонных ліній. *Званіць трэба праз к.* ‖ *прым.* **камута́тарны**, -ая, -ае.

**КАМУФЛЕ́Т**, -у, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Падземны выбух міны для разбурэння падземных збудаванняў праціўніка або разрыў артылерыйскага снарада без утварэння варонкі (спец.). **2.** *перан.* Нечаканая непрыемнасць, няўдача (уст., жарт.). ‖ *прым.* **камуфле́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАМУФЛІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе, -руй; -раваны; *незак., што.* Маскіраваць сродкамі камуфляжу. ‖ *зак.* **закамуфлі́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**КАМУФЛЯ́Ж**, -у, *м.* **1.** Маскіроўка вайсковай тэхнікі, будынкаў і пад. шляхам фарбавання палосамі, плямамі рознай формы і рознага колеру (спец.). **2.** *перан.* Падманныя дзеянні, маскіроўка якой-н. дзейнасці, ашуканства. ‖ *прым.* **камуфля́жны**, -ая, -ае.

**КА́МФАРА** *і* **КАМФО́РА**, -ы, *ж.* Крышталічнае, з моцным пахам рэчыва, ужыв. ў тэхніцы і медыцыне. ‖ *прым.* **камфо́рны**, -ая, -ае *і* **камфо́равы**, -ая, -ае.

**КАМФАРТА́БЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які адпавядае ўсім патрабаванням камфорту. *Камфартабельная гасцініца.* ‖ *наз.* **камфарта́бельнасць**, -і, *ж.*

**КАМФО́РТ**, -у, *М* -рце, *м.* Сукупнасць бытавых выгод, зручнасцей; утульнасць. *Жыць з камфортам.* ‖ *прым.* **камфо́ртны**, -ая, -ае.

**КАМЧАДА́ЛЫ**, -аў, *адз.* -да́л, -а, *м.* У 18 ст. назва карэннага насельніцтва Камчаткі; ітэльмены. ‖ *ж.* **камчада́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **камчада́льскі**, -ая, -ае.

**КАМЮНІКЕ́**, *нескл., н.* (афіц.). Афіцыйнае паведамленне (пераважна па пытаннях міжнароднага значэння). *К. для друку.*

**КАМЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Сціснуты, змяты або злеплены ў адно кавалак якой-н. мяккай, рыхлай масы (разм.). *К. снегу. К. шэрсці.*

**КАМЯКАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). З камякамі, няроўны. *Камякаватае цеста.* ‖ *наз.* **камякава́тасць**, -і, *ж.*

**КАМЯНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Рабіцца цвёрдым, як камень. *Соль у вільготным месцы камянее.* **2.** *перан.* Станавіцца каменным (у 2 і 3 знач.). *К. ад жаху. Сэрца камянее.* ‖ *зак.* **акамяне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е *і* **скамяне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**КАМЯНІ́СТЫ**, -ая, -ае. З вялікай колькасцю каменя. *Камяністае поле.* ‖ *наз.* **камяні́стасць**, -і, *ж.*

**КАМЯНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* **1.** Каменны або цагляны будынак. *За год выраслі двухпавярховыя камяніцы з балконамі.* **2.** Камяністая глеба (разм.). *Не зямля, а к.*

**КАМЯЧЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ме́чыцца; *незак.* **1.** Мець уласцівасць рабіцца мятым, ператварацца ў камякі. *Папера лёгка камечыцца.* **2.** Збірацца ў складкі, мяцца. ‖ *зак.* **пакамячы́цца**, -ме́чыцца (да 2 знач.) *і* **скамячы́цца**, -ме́чыцца.

**КАМЯЧЫ́ЦЬ**, -мячу́, -ме́чыш, -ме́чыць; -ме́чаны; *незак., што.* **1.** Рабіць камякі, ляпіць што-н. з чаго-н. мяккага, рыхлага. *К. шарыкі з гліны.* **2.** Сціскаць у камяк, мяць (пра кулак). *К. кулакі.* ‖ *зак.* **пакамячы́ць**, -мячу́, -ме́чыш, -ме́чыць; -ме́чаны *і* **скамячы́ць**, -мячу́, -ме́чыш, -ме́чыць; -ме́чаны.

**КАНА́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -на́ў, *ж.* Неглыбокі і нешырокі роў, звычайна для сцёку вады. *Асушальная к.* ‖ *памянш.* **кана́ўка**, -і, *ДМ* -на́ўцы, *мн.* -і, -на́вак, *ж.*

**КАНАВАКАПА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Машына для капання канаў, траншэй і пад.

**КАНАВА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). **1.** Знахар, які лечыць коней (уст.). **2.** *перан.* Пра дрэннага ўрача, невука ў медыцыне (пагард.). *Такому канавалу не даверыш сваё здароўе.*

**КАНАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які наглядае за коньмі, калі коннікі спешваюцца.

**КАНАВЯ́ЗЬ** *і* **КО́НАВЯЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Прыстасаванне для прывязвання коней на адкрытым месцы.

**КАНА́ДЦЫ**, -аў, *адз.* -дзец, -дца, *м.* Насельніцтва Канады. ‖ *ж.* **кана́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак. ‖ *прым.* **кана́дскі**, -ая, -ае.

**КАНАІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -а, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца грэбляй на каноэ.

**КАНАКРА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Злодзей, які крадзе коней.

**КАНАКРА́ДСТВА**, -а, *н.* Крадзеж коней; занятак канакрада.

**КАНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Штучнае рэчышча, напоўненае вадой. *Асушальны к.* **2.** Вузкая поласць у выглядзе трубы, трубкі ўнутры чаго-н. (спец.). *К. ствала гарматы.* **3.** Лінія сувязі, камунікацыі. *Перадача вядзецца па трох каналах.* **4.** Тое, што і *тэлеканал. Пераключыць тэлевізар на больш цікавы к.* **5.** звычайна *мн., перан.* Шляхі, сродкі для дасягнення чаго-н. *Дыпламатычныя каналы.* ‖ *прым.* **кана́льны**, -ая, -ае (да 1, 2 і 3 знач.).

**КАНАЛІЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Сістэма труб, падземных каналаў для выдалення нечыстот. *Гарадская к.* ‖ *прым.* **каналізацы́йны**, -ая, -ае.

**КАНАНА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -на́д, *ж.* Працяглая моцная стральба з вялікай колькасці гармат. *Грукат кананады.*

**КАНАНЕ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Тое, што і кананерская лодка.

**КАНАНЕ́РСКІ**, -ая, -ае. У выразе: **кананерская лодка** — невялікае ваеннае судна з некалькімі гарматамі для дзеяння паблізу берагоў.

**КАНАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак. і незак.* **1.** *каго (што).* У рэлігіі: залічыць (залічваць) у святыя, прызнаць (прызнаваць) царкоўна ўзаконеным. **2.** *што.* Прызнаць (прызнаваць) канонам (у 2 знач.), узаконіць (узаконьваць) у якасці ўзору (кніжн.). *К. палажэнні якога-н. вучэння.* ‖ *наз.* **каніза́цыя**, -і, *ж.*

**КАНАНІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Радавы артылерыі ў дарэвалюцыйнай Расіі. ‖ *прым.* **канані́рскі**, -ая, -ае.

**КАНАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адпавядае канону. **2.** Прызнаны царквой у якасці Свяшчэннага Пісання. *Кананічныя кнігі.* **3.** Прыняты за ўзор, цвёрда ўстаноўлены. *Кананічныя тэксты.* ‖ *наз.* **канані́чнасць**, -і, *ж.*

**КАНА́ПА**, -ы, *мн.* -ы, -на́п, *ж.* Прадмет мяккай мэблі са спінкай і падлакотнікамі для сядзення і ляжання. ‖ *прым.* **кана́пны**, -ая, -ае.

**КАНАПА́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто пасе коней.

**КАНАПА́ЦІЦЬ**, -па́чу, -па́ціш, -па́ціць; -па́чаны; *незак., што.* Затыкаць дзіркі, шчыліны чым-н. (пакуллем, мохам і інш.). *К. сцены. К. лодку.* ‖ *зак.* **заканапа́ціць**, -па́чу, -па́ціш, -па́ціць; -па́чаны. ‖ *наз.* **канапа́чанне**, -я, *н.*

**КАНАПЕ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* Народная назва некаторых відаў лугавых траў (дрыжніку, кураслепу і інш.).

**КАНАПЛЯ́НІК**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у, *зб.* Сцёблы канапляў без насення, канапляная салома. **2.** -а, *мн.* -і, -аў. Участак зямлі, засеяны канаплямі. *Крайнюю паласу агарода займаў к.*

**КАНАПЛЯ́НІШЧА**, -а, *н.* Поле, дзе раслі каноплі.

**КАНАПЛЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Невялікая пеўчая птушка атрада вераб'іных з доўгім хвастом і канічнай дзюбай, якая жывіцца пераважна насеннем травяністых раслін. **2.** Цёплая хустка з канапляных нітак (разм.).

**КАНАПЛЯ́НЫ** *гл.* каноплі.

**КАНАРЭ́ЙКА**, -і, *ДМ* -рэ́йцы, *мн.* -і, -рэ́ек, *ж.* Пеўчая птушка паўднёвых краін з ярка-жоўтым апярэннем, больш вядомая як пакаёвая. ‖ *прым.* **канарэ́ечны**, -ая, -ае. *К. спеў.*

**КАНА́Т**, -а, *М* -на́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тоўстая моцная вяроўка з пяньковага валакна або дроту. *Сталёвы к.* ‖ *прым.* **кана́тны**, -ая, -ае. *Канатная дарога.*

**КАНАТАХО́ДЗЕЦ**, -дца, *мн.* -дцы, -дцаў, *м.* Цыркавы артыст, які выконвае практыкаванні на нацягнутым у паветры канаце.

**КАНА́ЎС**, -у, *м.* Гатунак шчыльнай шаўковай тканіны. ‖ *прым.* **кана́ўсавы**, -ая, -ае.

**КАНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* (разм.) **1.** Паміраць у муках, канчацца. *К. у нечалавечых пакутах.* **2.** *перан.* Набліжацца да канца, канчацца. ‖ *наз.* **кана́нне**, -я, *н.*

**КАНВА́**, -ы́, *ж.* **1.** Рэдкая сятчатая баваўняная або льняная тканіна, якая слу-

жыць асновай для вышыўкі крыжам па клетках. *Вышываць па канве.* **2.** *перан.* Аснова чаго-н. *Сюжэтная к. рамана. Хроналагічная к.* ‖ *прым.* **канво́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАНВАІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто канваіруе каго-, што-н. *Калона палонных з канваірамі.* ‖ *прым.* **канваі́рскі**, -ая, -ае.

**КАНВАІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., каго-што.* Суправаджаць канвоем. *К. палонных.*

**КАНВЕ́ЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыстасаванне для бесперапыннага перамяшчэння вырабаў пры іх апрацоўцы ад аднаго рабочага да другога або для транспарціроўкі грузаў. ◊ **Па канвееры** — ад аднаго да другога перадаваць і пад. **Паставіць на канвеер** *што* — наладзіць бесперабойную вытворчасць чаго-н. ‖ *прым.* **канве́ерны**, -ая, -ае. *Канвеерная лента.*

**КАНВЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Назва выбарных органаў з асобымі заканадаўчымі паўнамоцтвамі ў некаторых краінах (у Францыі ў 1792—1795 гг.). *Нацыянальны к.*

**КАНВЕ́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (афіц.). Міжнародная дамова, пагадненне па якім-н. спецыяльным пытанні. ‖ *прым.* **канвенцы́йны**, -ая, -ае.

**КАНВЕРСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* і *незак., што.* Зрабіць (рабіць) пераразлік, а таксама ўвогуле змяніць (мяняць), ператвараючы ў новы від, у новую якасць. *К. пазыку.* ‖ *наз.* **канверсава́нне**, -я, *н.* і **канве́рсія**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **канверсі́йны**, -ая, -ае.

**КАНВЕ́РСІЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** *гл.* канверсаваць. **2.** Перавод прадпрыемстваў абароннай прамысловасці на вытворчасць грамадзянскай прадукцыі і тавараў народнага спажывання. **3.** Тое, што і *канвертацыя.*

**КАНВЕ́РТ**, -а, *м.* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пакет з паперы для перасылкі пісьма па пошце. *Купіць канвертаў.* **2.** Коўдра для грудных дзяцей, пашытая ў форме пакета. ‖ *прым.* **канве́ртны**, -ая, -ае.

**КАНВЕРТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Абмен грашовых сродкаў (у адпаведнасці з дзеючым валютным курсам) і каштоўных папер. *К. нацыянальнай валюты.*

**КАНВО́Й**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Узброены атрад, які суправаджае каго-, што-н. для аховы або прадухілення ўцёкаў. *Узяць пад к. Марскі к.* ‖ *прым.* **канво́йны**, -ая, -ае. *К. салдат. Канвойная служба. У суправаджэнні канвойных* (наз.).

**КАНВУ́ЛЬСІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* Тое, што і *сутарга.* ‖ *прым.* **канвульсі́йны**, -ая, -ае.

**КАНГЕНІЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Адпаведны па духу, складзе думак, таленавітасці. *Пераклад, к. тэксту.* ‖ *наз.* **кангенія́льнасць**, -і, *ж.*

**КАНГЛАМЕРА́Т**, -у, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Механічнае спалучэнне чаго-н. разнароднага (кніжн.). *К. думак.* **2.** Асадкавая горная парода, якая складаецца з разнародных сцэментаваных часцінак (спец.). ‖ *прым.* **кангламера́тны**, -ая, -ае.

**КАНГРЭ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** З'езд, нарада. *К. беларусістаў.* **2.** Назва парламента ў ЗША і некаторых іншых краінах.

**КАНГРЭСМЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Член палаты прадстаўнікоў кангрэса ЗША.

**КАНДАЦЬЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Начальнік наёмнай дружыны ў сярэдневяковай Італіі. **2.** *перан.* Пра чалавека, які дзеля выгады гатоў абараняць любую справу (кніжн.).

**КАНДУІ́Т**, -а, *М* -дуі́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). У дарэвалюцыйнай Расіі (пераважна ў духоўных навучальных установах і кадэцкіх карпусах): журнал, у які заносіліся звесткі пра паводзіны вучняў або ваеннаслужачых. *Запісаць у к.* ‖ *прым.* **кандуі́тны**, -ая, -ае.

**КАНДУ́КТАР**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік чыгуначнага транспарту, які суправаджае цягнікі, а таксама работнік гарадскога транспарту, які прадае білеты пасажырам. ‖ *ж.* **канду́ктарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **канду́ктарскі**, -ая, -ае.

**КАНДУ́КТАР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыстасаванне ў станках, якое забяспечвае ўзаемна правільнае размяшчэнне інструмента і вырабу, які апрацоўваецца. ‖ *прым.* **канду́ктарны**, -ая, -ае.

**КАНДЫДА́Т**, -а, *М* -да́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Асоба, якая намячаецца да выбрання, назначэння або для прыёму куды-н. *К. у дэпутаты.* **2.** *чаго.* Малодшая вучоная ступень, якая прысуджаецца пасля абароны дысертацыі, а таксама асоба, якая мае гэту ступень. *К. філалагічных навук.* ‖ *ж.* **кандыда́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 1 знач.; разм.). ‖ *прым.* **кандыда́цкі**, -ая, -ае.

**КАНДЫДАТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -тур, *ж.* **1.** Права ці магчымасць стаць кандыдатам (у 1 знач.). *Абмеркаваць кандыдатуру для ўнясення ў спіс для тайнага галасавання.* **2.** Тое, што і *кандыдат* (у 1 знач.). *К. не зусім падыходзіць.*

**КАНДЫ́ЛЬ**, -ю, *м.* Сорт яблыні, а таксама яе плод, які мае прадаўгаватую форму.

**КАНДЫ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па прыгатаванні кандытарскіх вырабаў.

**КАНДЫ́ТАРСКІ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да вытворчасці салодкіх мучных вырабаў або да гандлю імі. *Кандытарскія вырабы. К. магазін. Пайсці ў кандытарскую* (наз.).

**КАНДЫ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Норма, якасць, якім павінна адпавядаць прадукцыя. *Давесці да адпаведнай кандыцыі.* ‖ *прым.* **кандыцы́йны**, -ая, -ае. *Кандыцыйнае насенне.*

**КАНДЫЦЫЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апарат для кандыцыяніравання паветра. ‖ *прым.* **кандыцыяне́рны**, -ая, -ае.

**КАНДЫЦЫЯНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Прывесці (прыводзіць) у адпаведнасць з пэўнымі нормамі, патрабаваннямі. *К. паветра.* ‖ *наз.* **кандыцыяні́раванне**, -я, *н.*

**КАНДЭЛЯ́БР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Падсвечнік для некалькіх свечак, а таксама падстаўка-свяцільня для электрычных лямп, звычайна ў выглядзе свечак. ‖ *прым.* **кандэля́бравы**, -ая, -ае.

**КАНДЭНСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Падвергнуць (падвяргаць) кандэнсацыі. *К. пару. К. энергію.* ‖ *зак.* таксама **скандэнсава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны. ‖ *наз.* **кандэнсава́нне**, -я, *н.*

**КАНДЭНСА́Т**, -у, *М* -са́це, *м.* (спец.). Прадукт, які атрымліваецца ў выніку кандэнсацыі (у 1 знач.). *Газавы к.* ‖ *прым.* **кандэнса́тны**, -ая, -ае.

**КАНДЭНСА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыбор для кандэнсацыі чаго-н. *К. пары.* ‖ *прым.* **кандэнса́тарны**, -ая, -ае.

**КАНДЭНСА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Пераход рэчыва з газападобнага стану ў вадкі або крышталічны. *К. пары.* **2.** Накапленне ў вялікай колькасці. *К. энергіі.* ‖ *прым.* **кандэнсацы́йны**, -ая, -ае.

**КАНЕ́Ц**, -нца́, *мн.* -нцы́, -нцо́ў, *м.* **1.** Мяжа, край, апошняя кропка працягласці ў прасторы чаго-н., а таксама прылягаючая да іх частка. *К. дарогі. К. горада. К. часопіса.* **2.** Апошні момант чаго-н., што мае працягласць у часе, а таксама час, звязаны з гэтым момантам. *К. вясны.* **3.** Адрэзак шляху пэўнай працягласці; адлегласць паміж двума пунктамі (разм.). *Такі к. прайшлі пехатой!* **4.** Вяроўка, канат для прычалу суднаў (спец.). *Швартовы к.* **5.** *перан.* Смерць, гібель (разм.). **6.** толькі *мн.* Астаткі нітак асновы, якія не могуць быць датканы і адразаюцца ад палатна (спец.). ◊ **Адзін канец** (разм.) — усё роўна, няхай будзе так. **Без канца** (разм.) — вельмі доўга, вельмі многа, бесперапынна. **Да канца** — канчаткова, поўнасцю. **Звесці канцы з канцамі** (разм.) — з цяжкасцю задаволіць жыццёвыя патрэбы, ледзь укласціся ў суму даходу, заработку. **З усіх канцоў** — адусюль, з розных бакоў. **Канца (канца-краю) не відаць (няма)** (разм.) — пра тое, чаго вельмі многа, што цягнецца доўга. **Канцы з канцамі не сходзяцца** (разм.) — 1) няма ўзгодненасці, адпаведнасці паміж рознымі часткамі, бакамі чаго-н.; 2) *у каго* не хапае чаго-н. на ўвесь вызначаны перыяд. **Канцы ў ваду** (разм.) — ніякіх слядоў (злачынства, правіннасці) не засталося. **На благі канец** — пры найгоршых абставінах, у горшым выпадку. **Пад канец** — пры заканчэнні. **У два канцы** — туды і назад (ехаць, ісці і пад.). ‖ *памянш.* **ко́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 і 6 знач.). *К. ніткі.*

**КАНЕ́ЧНАСЦІ**, -ей, *адз.* кане́чнасць, -і, *ж.* Рукі і ногі ў чалавека, а таксама органы руху ў жывёл. *Верхнія канечнасці. Пярэднія і заднія канечнасці* (у жывёл).

**КАНЕ́ЧНЕ.** **1.** *пабочн. сл.* Само сабой зразумела, без сумнення. *Я, к., нічога не ведала.* **2.** *прысл.* Абавязкова, што б ні здарылася. *К. я не паеду ў вёску.* **3.** *часц.* Так, вядома. — *Ці маеце ахвоту падарожнічаць? — К.!*

**КАНЕ́ЧНЫ,** -ая, -ае. **1.** Які мае канец, мяжу (у прасторы і часе); *проціл.* бесканечны. *Канечная велічыня* (у матэматыцы — велічыня, што змяняецца ў пэўных межах, не роўная ні нулю, ні бесканечнасці). **2.** Тое, што і *канцавы. К. прыпынак.* **3.** Тое, што і *канчатковы* (у 2 знач.). *К. вынік. К. прадукт.* ‖ *наз.* **кане́чнасць,** -і, *ж.* (да 1 знач.).

**КАНЁК**[1], канька́, *мн.* канькі́, канько́ў, *м.* **1.** *гл.* конь. **2.** Месца сыходжання нахіленых плоскасцей двухсхільнага даху, вільчык страхі. **3.** Разное ўпрыгожанне ў выглядзе конскай галавы на канцы падоўжнага бруса, што ўтварае верхні край страхі. *Разны к. упрыгожвае дах.* **4.** *перан.* Любімая тэма размовы, любімы занятак каго-н. *Чытанне вершаў было яго канько́м. Акардэон — мой к.*

**КАНЁК**[2] *гл.* канькі.

**КАНІБА́Л,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Людаед (кніжн.). **2.** *перан.* Жорсткі, люты чалавек. ‖ *прым.* **каніба́льскі,** -ая, -ае. *Канібальскія норавы.*

**КАНІ́КУЛЫ,** -аў. Перапынак у занятках, які даецца навучэнцам для адпачынку. *Летнія к.* ‖ *прым.* **канікуля́рны,** -ая, -ае. *К. час.*

**КАНІ́НА,** -ы, *ж.* Мяса каня.

**КАНІ́СТРА,** -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Бак з герметычнай накрыўкай для бензіну, змазачных масел і пад. ‖ *прым.* **кані́стравы,** -ая, -ае.

**КАНІФА́С,** -у, *м.* Лёгкая баваўняная тканіна з рэльефным тканым малюнкам. ‖ *прым.* **каніфа́савы,** -ая, -ае.

**КАНІФО́ЛІЦЬ,** -лю, -ліш, -ліць; *незак., што.* Націраць каніфоллю. *К. смык.* ‖ *зак.* **наканіфо́ліць,** -лю, -ліш, -ліць; -лены.

**КАНІФО́ЛЬ,** -і, *ж.* Жаўтавата-чырвонае смалістае рэчыва, якое выкарыстоўваецца ў якасці клеявога і ізаляцыйнага матэрыялу ў прамысловасці, а таксама для націрання смычкоў струнных інструментаў. ‖ *прым.* **каніфо́льны,** -ая, -ае.

**КАНІЦЕ́ЛЬ,** -і, *ж.* **1.** Вельмі тонкая металічная нітка для вышывання. **2.** *перан.* Нуднае, зацяжное вырашэнне якой-н. справы, валакіта. ‖ *прым.* **каніце́льны,** -ая, -ае. *Каніцельная справа.*

**КАНІЦЕ́ЛЬШЧЫК,** -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). **1.** Рабочы каніцельнай вытворчасці. **2.** *перан.* Нерастаропны, марудны чалавек, якому ўласціва запаволенае бесталковае вядзенне справы. *Ён у нас вядомы к.* ‖ *ж.* **каніце́льшчыца,** -ы, *мн.* -чыц. ‖ *прым.* **каніце́льшчыцкі,** -ая, -ае.

**КАНІ́ЧНЫ,** -ая, -ае. Які мае форму конуса. *Канічная паверхня.*

**КАНКА́Н,** -а, *м.* Эксцэнтрычны эстрадны танец, які выконваецца ў хуткім тэмпе з характэрным высокім ускідваннем ног.

**КАНКАРДА́НС,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Тып слоўніка, які поўна падае словы канкрэтнага тэксту з лексікаграфічнымі характарыстыкамі (камбінаторнымі, частотнымі і інш.) і з усімі наяўнымі ў тэксце ілюстрацыямі да кожнага слова.

**КАНКЛА́Ў,** -ла́ва, *м.* Савет кардыналаў, які выбірае Папу Рымскага.

**КАНКРЭ́ТНЫ,** -ая, -ае. Які рэальна існуе, дакладны, прадметна акрэслены ў адрозненне ад абстрактнага, адцягненага. *К. прадмет. Развважаць канкрэтна* (прысл.). ‖ *наз.* **канкрэ́тнасць,** -і, *ж.*

**КАНКРЭТЫЗАВА́ЦЬ,** -зую, -зуеш, -зуе; -зу́й; -заваны; *зак.* і *незак., што.* Даць (даваць) канкрэтнае выражэнне чаму-н.; удакладніць (удакладняць) што-н. *К. прапанову.* ‖ *наз.* **канкрэтыза́цыя,** -і, *ж.*

**КАНКРЭ́ТЫКА,** -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* (разм.). Канкрэтныя факты, справы, учынкі.

**КАНКУ́Р,** -а, *м.* У конным спорце: пераадоленне некалькіх перашкод на пэўным маршруце. *Спаборнічаць у канкуры.* ‖ *прым.* **канку́рны,** -ая, -ае.

**КАНКУРСА́НТ,** -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік конкурсу (звычайна музычнага). ‖ *ж.* **канкурса́нтка,** -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**КАНКУРЫ́РАВАЦЬ,** -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., з кім-чым у чым.* Уступаць у канкурэнцыю з кім-н.

**КАНКУРЭ́НТ,** -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто канкурыруе з кім-н. ‖ *ж.* **канкурэ́нтка,** -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **канкурэ́нцкі,** -ая, -ае.

**КАНКУРЭНТАЗДО́ЛЬНЫ,** -ая, -ае. Здольны вытрымаць канкурэнцыю, супрацьстаяць канкурэнтам. ‖ *наз.* **канкурэнтаздо́льнасць,** -і, *ж.*

**КАНКУРЭ́НЦЫЯ,** -і, *ж.* Саперніцтва, барацьба за перавагу, за дасягненне больш выгод. *Гандлёвая к.* ‖ *прым.* **канкурэ́нтны,** -ая, -ае.

**КАНО́Н,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Царкоўнае ўстанаўленне, правіла, узаконенае вышэйшай царкоўнай іерархіяй. *Царкоўны к.* **2.** Правіла або сукупнасць правіл якога-н. кірунку, вучэння (кніжн.). *Эстэтычныя каноны класіцызму.* **3.** Спіс рэлігійных кніг, прызнаных царквою ў якасці Свяшчэннага Пісання (спец.). *Біблейскі к.* **4.** Царкоўнае песнапенне ў пахвалу святога або свята (спец.). *Велікодны к.*

**КАНО́ПЛІ,** канапе́ль. Высокая травяністая расліна сямейства каноплевых, са сцёблаў якой вырабляюць пяньку, а з семя — алей, а таксама семя гэтай расліны. ◊ **Як Піліп з канапель** (разм.) — знянацку выскачыць, з'явіцца адкуль-н. ‖ *прым.* **канапля́ны,** -ая, -ае. *К. алей.*

**КАНО́Э,** *нескл., н.* Адкрытая спартыўная лодка без уключын, у якой грабуць аднапалопасцевым вяслом, стоячы на адным калене (бываюць адзіночкі і двойкі).

**КАНСАЛІДАВА́ЦЬ,** -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны; *зак.* і *незак., што.* **1.** З'яднаць (яднаць), згуртаваць (згуртоўваць) (кніжн.). *К. сілы змагароў за незалежнасць.* **2.** Пераатварыць (ператвараць) кароткатэрміновыя даўгавыя абавязацельствы ў доўгатэрміновыя або бестэрміновыя (спец.). *К. пазыку.* ‖ *наз.* **кансаліда́цыя,** -і, *ж.*

**КАНСАНА́НС,** -у, *м.* Мілагучнае спалучэнне гукаў; *проціл.* дысананс. ‖ *прым.* **кансана́нсны,** -ая, -ае.

**КАНСЕРВАВА́ЦЬ,** -рвую, -рву́еш, -рву́е; -рву́й; -рвава́ны; *незак., што.* **1.** Нарыхтоўваючы, падвяргаць спецыяльнай апрацоўцы для засцярогі ад псавання. *К. мяса.* **2.** Прымаць спецыяльныя тэхнічныя меры для засцярогі ад псавання, карозіі (спец.). *К. лесаматэрыялы. К. машыны, станкі.* **3.** Часова прыпыняць развіццё, дзейнасць чаго-н. *К. будаўніцтва.* ‖ *зак.* **закансервава́ць,** -рвую, -рву́еш, -рву́е; -рву́й; -рвава́ны. ‖ *наз.* **кансерва́цыя,** -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.) *і* **кансервава́нне,** -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**КАНСЕРВА́ТАР,** -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек кансерватыўных поглядаў. **2.** Член кансерватыўнай партыі. ‖ *прым.* **кансерва́тарскі,** -ая, -ае.

**КАНСЕРВАТО́РЫЯ,** -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Вышэйшая музычная навучальная ўстанова. ‖ *прым.* **кансервато́рскі,** -ая, -ае.

**КАНСЕРВАТЫ́ЗМ,** -у, *м.* Кансерватыўныя погляды, пераканanni. *К. у кіраўніцтве.*

**КАНСЕРВАТЫ́ЎНЫ,** -ая, -ае. Варожы ўсяму новаму, прагрэсіўнаму, які абараняе старое, аджылае. *Кансерватыўная палітыка. Кансерватыўныя погляды.* ‖ *наз.* **кансерваты́ўнасць,** -і, *ж.*

**КАНСЕ́РВЫ,** -аў. Кансерваваныя прадукты харчавання. *Мясныя к.* ‖ *прым.* **кансе́рвавы,** -ая, -ае.

**КАНСІ́ЛІУМ,** -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Нарада ўрачоў для абмеркавання стану хворага, удакладнення дыягназу і спосабаў лячэння.

**КАНСІСТО́РЫЯ,** -і, *ж.* **1.** Царкоўнаадміністрацыйны і царкоўна-судовы орган пры епархіяльным архірэі ў дарэвалюцыйнай Расіі. **2.** У каталіцкай царкве: нарада, савет кардыналаў, які ўзначальвае Папа Рымскі. ‖ *прым.* **кансісто́рскі,** -ая, -ае.

**КАНСІСТЭ́НЦЫЯ,** -і, *ж.* (кніжн.). Ступень шчыльнасці, цвёрдасці, густаты чаго-н. *Цвёрдая к. Вадкая к. сумесі.*

**КАНСО́ЛЬ,** -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* (спец.). Выступ у сцяне для падтрымкі некаторых частак будынка (карніза, балкона і інш.) або для ўстаноўкі на ім скульптур. ‖ *прым.* **кансо́льны,** -ая, -ае.

**КАНСПЕ́КТ,** -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кароткі запіс зместу чаго-н. *К. лекцыі.* ‖ *прым.* **канспе́ктны,** -ая, -ае.

**КАНСПЕКТАВА́ЦЬ,** -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што.* Складаць канспект чаго-н. *К. лекцыю.* ‖ *зак.* **заканспектава́ць,** -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны *і* **праканспектава́ць,** -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *наз.* **канспектава́нне,** -я, *н.*

**КАНСПЕКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які мае характар канспекта; кароткі. *К. пераказ лекцыі. Канспектыўнае паведамленне.* ‖ *наз.* **канспекты́ўнасць**, -і, *ж.*

**КАНСПІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак., каго-што* і *без дап.* Прымяняць метады канспірацыі, захоўваць канспірацыю. *К. падпольную работу.* ‖ *зак.* **заканспіравáць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны.

**КАНСПІРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто карыстаецца канспірацыяй. ‖ *прым.* **канспіра́тарскі**, -ая, -ае.

**КАНСПІРАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з канспірацыяй; тайны, падпольны. *К. сход. Канспіратыўная кватэра.* ‖ *наз.* **канспіраты́ўнасць**, -і, *ж.*

**КАНСПІРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Сістэма і метады, якія прымяняюцца для захоўвання ў тайне дзейнасці каго-, чаго-н.; захоўванне тайны. *Строгая к.* ‖ *прым.* **канспірацы́йны**, -ая, -ае.

**КАНСТА́НТА**, -ы, *ДМ* -нце, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (спец.). Пастаянная велічыня. ‖ *прым.* **канста́нтны**, -ая, -ае.

**КАНСТАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што* і *без дап.* Устанавіць (устанаўліваць) наяўнасць, несумненнасць чаго-н. *К. факт.* ‖ *наз.* **канстата́цыя**, -і, *ж. і* **канстатава́нне**, -я, *н.*

**КАНСТРУ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст, які канструюе (у 1 знач.), стварае канструкцыю чаго-н. *К. авіямадэлей.* **2.** Дзіцячая гульня — набор дэталей для канструявання. ‖ *прым.* **канстру́ктарскі**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Канструктарскае бюро.*

**КАНСТРУКТЫВІ́ЗМ**, -у, *м.* Кірунак у розных галінах мастацтва і літаратуры 20 ст., у аснове якога ляжаць прынцыпы прастаты і эканамічнасці форм, імкненне выразіць у творах мастацтва канструктыўныя, тэхнічныя ўласцівасці матэрыялу. ‖ *прым.* **канструктыві́сцкі**, -ая, -ае.

**КАНСТРУКТЫВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік канструктывізму. ‖ *ж.* **канструктыві́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **канструктыві́сцкі**, -ая, -ае.

**КАНСТРУКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да канструкцыі (у 1 знач.), патрэбны для канструявання (спец.). *Канструктыўныя асаблівасці збудавання.* **2.** Які складае аснову чаго-н.; важны (кніжн.). *Канструктыўная прапанова.* ‖ *наз.* **канструкты́ўнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**КАНСТРУ́КЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Будова, узаемнае размяшчэнне частак, дэталей якога-н. збудавання, механізма і пад., а таксама само збудаванне, механізм. *К. моста. Новая к.* **2.** Размяшчэнне слоў у мове з пункту гледжання іх граматычнай сувязі; граматычная будова словазлучэння. *К. складанага сказа. Сінтаксічная к.* ‖ *прым.* **канструкцы́йны**, -ая, -ае. *Канструкцыйныя матэрыялы.*

**КАНСТРУЯВА́ЦЬ**, -рую́ю, -рую́еш, -рую́е; -руй́; -руява́ны; *незак., што.* **1.** Ствараць канструкцыю чаго-н.; будаваць. *К. радыёпрыёмнік.* **2.** Ствараць у пэўным саставе (кніжн.). *К. прэзідыум міжнароднага кангрэса.* ‖ *зак.* **сканструявáць**, -рую́ю, -рую́еш, -рую́е; -руй́; -руява́ны.

**КАНСТЫТУ́ЦЫЯ**[1], -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Асноўны закон дзяржавы, які вызначае асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу, сістэму дзяржаўных органаў, правы і абавязкі грамадзян. *К. Рэспублікі Беларусь.* ‖ *прым.* **канстытуцы́йны**, -ая, -ае. *К. лад.*

**КАНСТЫТУ́ЦЫЯ**[2], -і, *ж.* (спец.). Будова арганізма, склад цела. *К. чалавека.* ‖ *прым.* **канстытуцы́йны**, -ая, -ае.

**КАНСУЛЬТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *незак., з кім.* Раіцца са спецыялістам па якім-н. пытанні. ‖ *зак.* **пракансультава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся.

**КАНСУЛЬТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., каго* і *без дап.* Даваць кансультацыю (у 2 і 4 знач.). ‖ *зак.* **пракансультава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны.

**КАНСУЛЬТА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто дае кансультацыі (у 2 знач.). ‖ *ж.* **кансульта́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (разм.). ‖ *прым.* **кансульта́нцкі**, -ая, -ае.

**КАНСУЛЬТА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Парада спецыяліста па якім-н. пытанні. *Атрымаць кансультацыю.* **2.** Установа, якая аказвае дапамогу насельніцтву парадамі спецыялістаў па якіх-н. пытаннях. *Юрыдычная к.* **3.** Дадатковыя заняткі выкладчыка з навучэнцамі для лепшага засваення прадмета. *Расклад кансультацый перад сесіяй.* **4.** Абмеркаванне якога-н. пытання спецыялістамі. *Склікаць кансультацыю юрыстаў.* ‖ *прым.* **кансультацы́йны**, -ая, -ае.

**КАНСЬЕ́РЖ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Швейцар пры доме. ‖ *ж.* **кансье́ржка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак.

**КАНСЭ́НСУС**, -у, *м.* (кніжн.). Адзінства меркаванняў, узаемная згода па спрэчным пытанні, дасягнутая ў выніку абмеркавання і збліжэння пазіцый.

**КАНТ**[1], -а, *М* ка́нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Востры край, рабро чаго-н. *К. стала.* **2.** Каляровы шнурок, аблямоўка па краях або швах адзення, часцей форменнага. **3.** Палоска, якой абклеены (абведзены) па краях у выглядзе рамкі малюнак, табліца і пад. ‖ *памянш.* **ка́нцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **ка́нтавы**, -ая, -ае.

**КАНТ**[2], -а, *М* ка́нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Пахвальнае песнапенне ўрачыстага царкоўнага або свецкага зместу.

**КАНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што.* **1.** Абчэсваючы (бервяно, дошку, камень і пад.), рабіць кант[1] (у 1 знач.). *К. бервяно.* **2.** Пераварочваць, паварочваць на бок (груз ці выраб пры перамяшчэнні, апрацоўцы і пад.). *Асцярожна, не к.!* ‖ *зак.* **акантава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **кантава́нне**, -я, *н.*, **канто́ўка**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *ж.*, **аканто́ўванне**, -я, *н. і* **аканто́ўка**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **канто́вачны**, -ая, -ае *і* **аканто́вачны**, -ая, -ае.

**КАНТА́КТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сутыкненне, непасрэдная блізкасць па месцы знаходжання. *Уступіць у к. з хворым.* **2.** *перан.* Цесная ўзаемасувязь, узгодненасць у дзеяннях, узаемаразуменне. *Устанавіць к. Дзелавыя кантакты.* **3.** Прыстасаванне, якое забяспечвае судакрананне правадоў электрычнага ланцуга (спец.). ‖ *прым.* **канта́ктны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАНТАМІНА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Змешванне дзвюх або некалькіх падзей пры іх апісанні (кніжн.). **2.** У мовазнаўстве: узнікненне новага слова або выразу ў выніку змешвання частак двух розных слоў або выразаў, блізкіх па значэнні ці гучанні, а таксама слова або выраз, якія ўзніклі такім чынам; напр., няправільны выраз «іграць значэнне» з'яўляецца кантамінацыяй двух выразаў: «іграць ролю» і «мець значэнне». ‖ *прым.* **кантамінацы́йны**, -ая, -ае.

**КА́НТАР**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вуздэчка без цугляў для прывязвання каня.

**КА́НТАР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Род бязмена.

**КА́НТАР**[3], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пеўчы хору ў каталіцкай царкве. **2.** Галоўны пеўчы ў сінагозе. **3.** Настаўнік і дырыжор хору, а таксама арганіст у пратэстанцкай царкве.

**КАНТА́ТА**, -ы, *ДМ* -та́це, *мн.* -ы, -та́т, *ж.* **1.** Буйны музычны твор урачыстага або лірыка-эпічнага зместу для салістаў, хору і аркестра. **2.** Жанр урачыстай лірыкі — вершаваны твор на міфалагічную тэму або да якой-н. урачыстасці (спец.). ‖ *прым.* **канта́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАНТО́ВЫ**, -ая, -ае. Які мае канты, з кантамі (у 1 знач.). *К. слуп.*

**КАНТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Бельгіі, Францыі і інш. ‖ *прым.* **кантана́льны**, -ая, -ае.

**КАНТО́РА**, -ы, *мн.* -ы, -то́р, *ж.* Агульная назва адміністрацыйна-канцылярскіх аддзелаў прадпрыемстваў, а таксама самастойных устаноў, пераважна гаспадарчага, фінансавага характару. *К. завода.* ‖ *прым.* **канто́рскі**, -ая, -ае. *Канторскія кнігі.*

**КАНТО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Высокі пісьмовы стол з нахіленай дошкай, за якім працуюць, стоячы або седзячы на высокай табурэтцы. **2.** Невялікае памяшканне для майстра, кіраўніка цэха і пад.

**КАНТО́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Работнік канторы. ‖ *ж.* **канто́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **канто́ршчыцкі**, -ая, -ае.

**КАНТРАБА́НДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Незаконны тайны правоз або перанос праз дзяржаўную граніцу абкладзеных пошлінай або забароненых тавараў, каштоўнасцей і інш., а таксама тавары, перапраў-

леныя такім спосабам. *К. наркотыкаў.* ‖ *прым.* **кантраба́нды**, -ая, -ае.

**КАНТРАБАНДЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца кантрабандай. ‖ *ж.* **кантрабанды́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **кантрабанды́сцкі**, -ая, -ае.

**КАНТРАБА́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Струнны смычковы музычны інструмент самага нізкага гучання. ‖ *прым.* **кантраба́сны**, -ая, -ае *і* **кантрабасо́вы**, -ая, -ае. *Кантрабасны смычок. Кантрабасовая партыя.*

**КАНТРА́КТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пісьмовая дамова, пагадненне з узаемнымі абавязкамі двух бакоў. *Падпісаць к. К. паміж работнікам і работадаўцам. Заключыць к.* ○ **Шлюбны кантракт** — пісьмовы дагавор, пагадненне, якое рэгламентуе паводзіны і матэрыяльныя адносіны паміж мужам і жонкай. ‖ *прым.* **кантра́ктны**, -ая, -ае *і* **кантра́ктавы**, -ая, -ае (спец.).

**КАНТРАКТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., каго-што.* Заключаць кантракт на атрыманне, выкарыстоўванне каго-, чаго-н. *К. ураджай.* ‖ *зак.* **закантрактава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *наз.* **кантракта́цыя**, -і, *ж.*

**КАНТРАЛЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Службовая асоба, якая правярае каго-, што-н. *Грамадскі к.* ‖ *ж.* **кантралёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **кантралёрскі**, -ая, -ае.

**КАНТРА́ЛЬТА**, *нескл.* **1.** *н.* Самы нізкі жаночы голас (у спевах). **2.** *ж.* Спявачка з такім голасам. ‖ *прым.* **кантра́льтавы**, -ая, -ае.

**КАНТРАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *незак., каго-што.* Браць пад кантроль, правяраць. *К. працоўную дысцыпліну.* ‖ *зак.* **пракантралява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны. ‖ *наз.* **кантралява́нне**, -я, *н.*

**КАНТРАМА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Талон або другі ўмоўны знак, які дае права на бясплатнае наведванне тэатра, кіно і пад. ‖ *прым.* **кантрама́рачны**, -ая, -ае.

**КАНТРАПУ́НКТ**, -а, *М* -кце, *м.* (спец.). У музыцы: мастацтва спалучэння некалькіх самастойных мелодый, галасоў, якія гучаць адначасова, у адно гарманічнае цэлае (шматгалоссе), а таксама раздзел тэорыі музыкі, прысвечаны вывучэнню такіх спалучэнняў. ‖ *прым.* **кантрапу́нктны**, -ая, -ае *і* **кантрапу́нктавы**, -ая, -ае.

**КАНТРА́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* кантраст. **2.** З рэзкай розніцай паміж светлымі і цёмнымі часткамі. *Кантрасныя колеры.* ‖ *наз.* **кантра́снасць**, -і, *ж.*

**КАНТРА́СТ**, -у, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рэзка выражаная процілегласць. ‖ *прым.* **кантра́сны**, -ая, -ае. *Кантрасныя з'явы.*

**КАНТРАСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак.* Быць кантрасным каму-, чаму-н.; складаць кантраст з кім-, чым-н.

**КАНТРАЦЭПТЫ́ВЫ**, -аў (спец.). Процізачаткавыя сродкі. ‖ *прым.* **кантрацэпты́ўны**, -ая, -ае. *Кантрацэптыўныя сродкі.*

**КАНТРАЦЭПЦЫЯ**, -і, *ж.* Папярэджанне цяжарнасці з дапамогай спецыяльных сродкаў.

**КАНТРО́ЛЬ**, -ю, *м.* **1.** Праверка, а таксама назіранне з мэтай праверкі. *К. за якасцю прадукцыі. Грамадскі к. Дзяржаўны к.* **2.** *зб.* Кантралёры. *На маршруце працуе к.* ‖ *прым.* **кантро́льны**, -ая, -ае. *К. пост. Кантрольная работа.*

**КАНТРЫБУ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). Плацяжы, якія накладаюцца дзяржавай-пераможцай на пераможаную дзяржаву. ‖ *прым.* **кантрыбуцы́йны**, -ая, -ае.

**КАНТУ́ЗІЦЬ**, -ту́жу, -ту́зіш, -ту́зіць; -ту́жаны; *зак., каго-што.* Нанесці кантузію каму-, чаму-н. *К. галаву. Байца кантузіла* (безас.).

**КАНТУ́ЗІЯ**, -і, *мн.* -і, -зій, *ж.* Удар або траўма арганізма без пашкоджання знешняга покрыва цела. *Цяжкая к. пры выбуху бомбы.*

**КАНТЫНГЕ́НТ**, -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сукупнасць людзей, якія складаюць аднародную ў якіх-н. адносінах групу, катэгорыю (кніжн.). *К. навучэнцаў.* **2.** Устаноўленая для пэўных мэт найбольшая колькасць, норма чаго-н. *Экспартны к. тавараў.*

**КАНТЫНЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *мацярык.* ‖ *прым.* **кантынента́льны**, -ая, -ае. *К. клімат.*

**КАНТЫ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Зборнік каталіцкіх малітоўных песень і кантаў[2].

**КАНТЭ́ЙНЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Від тары для захоўвання і перавозкі грузаў, прадуктаў і пад. ‖ *прым.* **кантэ́йнерны**, -ая, -ае.

**КАНТЭ́КСТ**, -у, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Закончаны ўрывак тэксту, які дазваляе вызначыць сэнс кожнага слова або выразу, што ў яго ўваходзіць. *Слова выяўляе значэнне ў кантэксце.* ‖ *прым.* **кантэ́кстуальны**, -ая, -ае (спец.) *і* **кантэ́кставы**, -ая, -ае. *Кантэкстуальнае значэнне слова.*

**КА́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; кань; *зак.* Бясследна знікнуць, прапасці. *К. у нябыт.* ◊ **Кануць у Лету** (кніжн.) — быць забытым, знікнуць назаўсёды, бясследна (у грэчаскай міфалогіі: Лета — рака забыцця).

**КАНФАРМІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Прыстасавальніцтва, пасіўнае прыняцце існуючага парадку, пануючых думак, модных тэндэнцый. ‖ *прым.* **канфармі́сцкі**, -ая, -ае.

**КАНФАРМІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Прыхільнік канфармізму. ‖ *ж.* **канфармі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **канфармі́сцкі**, -ая, -ае.

**КАНФЕДЭРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік, член канфедэрацыі (у 1 і 2 знач.).

**КАНФЕДЭРА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Польскі нацыянальны мужчынскі галаўны ўбор у выглядзе чатырохкантовай шапкі без казырка.

**КАНФЕДЭРА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Саюз, аб'яднанне якіх-н. арганізацый. *Сусветная к. працы.* **2.** Пастаянны саюз дзяржаў, якія захоўваюць незалежнае (суверэннае) існаванне і аб'ядналіся з мэтай каардынацыі асобных пытанняў (знешнепалітычных і ваенных) у сваёй дзейнасці; адпаведная форма дзяржаўнага ўпарадкавання. ‖ *прым.* **канфедэраты́ўны**, -ая, -ае.

**КАНФЕРА́НС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Эстрадны жанр — выступленне на сцэне, звязанае з аб'яўленнем нумароў праграмы, канцэрта, а таксама тэкст такога выступлення.

**КАНФЕРАНСЬЕ́**, *нескл., м.* Артыст, які аб'яўляе нумары праграмы на эстрадным прадстаўленні, канцэрце і займае гледачоў у перапынках паміж нумарамі.

**КАНФЕРЭ́НЦ-ЗА́ЛА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Зала для ўрачыстых пасяджэнняў, канферэнцый.

**КАНФЕРЭ́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Сход, нарада прадстаўнікоў якіх-н. дзяржаў, арганізацый, устаноў для абмеркавання і вырашэння пэўных пытанняў. *Міжнародная к. Навуковая к.*

**КАНФЕ́СІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* (кніжн.). Тое, што і *веравызнанне.* ‖ *прым.* **канфесія́нальны**, -ая, -ае *і* **канфесі́йны**, -ая, -ае.

**КАНФЕЦІ́**, *нескл., н.* Рознакаляровыя папяровыя кружочкі, якімі абсыпаюць адзін аднаго на карнавалах, маскарадах і пад.

**КАНФІГУРА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). Знешнія абрысы, формы чаго-н., а таксама ўзаемнае размяшчэнне прадметаў або іх частак у выглядзе якой-н. фігуры. *К. марскіх берагоў. К. зорак.* ‖ *прым.* **канфігурацы́йны**, -ая, -ае.

**КАНФІДЭНЦЫЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Сакрэтны, даверны. *Канфідэнцыяльная размова. Паведаміць канфідэнцыяльна* (прысл.). ‖ *наз.* **канфідэнцыя́льнасць**, -і, *ж.*

**КАНФІРМА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* У каталікоў і пратэстантаў (у розных формах) таінства мірапамазання і абрад прыёму ў царкоўную супольнасць. ‖ *прым.* **канфірмацы́йны**, -ая, -ае.

**КАНФІСКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак. і незак., што.* Забраць (забіраць) на карысць дзяржавы пастановай дзяржаўнай улады. *К. маёмасць.* ‖ *наз.* **канфіска́цыя**, -і, *ж.*

**КАНФЛІ́КТ**, -у, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сутыкненне, сур'ёзнае разыходжанне, спрэчка. *Сямейны к. Узброены к.* ‖ *прым.* **канфлі́ктны**, -ая, -ае. *К. характар.*

**КАНФЛІКТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак., з кім* (разм.). Уступаць у канфлікт, канфлікты. *К. з адміністрацыяй.*

**КАНФО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Чыгунны або металічны кружок над адтулінай у кухоннай пліце (на дровах, газавай і пад.), на які ставіцца каструля, патэльня і інш., а таксама сама такая адтуліна. *Пліта на чатыры канфоркі.* **2.** Падстаўка для чайніка на самаварнай трубе. ‖ *прым.* **канфо́рачны**, -ая, -ае.

**КАНФРАНТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Процiпастаўленне, супрацьборства. *Палітычная к.* ‖ *прым.* **канфрантацы́йны**, -ая, -ае.

**КАНФУ́З**, -у, *м.* (разм.). Стан няёмкасці, збянтэжанасці; няёмкае, часам смешнае становішча. *Вось такі к. здарыўся.* ‖ *прым.* **канфу́зны**, -ая, -ае. *К. выпадак.*

**КАНФУ́ЗІЦЦА**, -фу́жуся, -фу́зішся, -фу́зіцца; *незак.* (разм.). Адчуваць няёмкасць; саромецца, бянтэжыцца. *К. на людзях.* ‖ *зак.* **сканфу́зіцца**, -фу́жуся, -фу́зішся, -фу́зіцца.

**КАНФУ́ЗІЦЬ**, -фу́жу, -фу́зіш, -фу́зіць; *незак., каго (што)* (разм.). Прыводзіць у канфуз. ‖ *зак.* **сканфу́зіць**, -фу́жу, -фу́зіш, -фу́зіць; -фу́жаны.

**КАНФУ́ЗЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Які лёгка канфузіцца, бянтэжыцца; сарамлівы. ‖ *наз.* **канфу́злівасць**, -і, *ж.*

**КАНЦАВЫ́**, -а́я, -о́е. Які знаходзіцца на канцы чаго-н., з'яўляецца канцом. *Канцавая станцыя. К. прыпынак тралейбуса.*

**КАНЦЛА́ГЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: канцэнтрацыйны лагер. ‖ *прым.* **канцла́герны**, -ая, -ае.

**КА́НЦЛЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адна з вышэйшых урадавых пасад у некаторых краінах Заходняй Еўропы, Вялікабрытаніі і інш., а таксама асоба, якая займае гэту пасаду. **2.** Начальнік канцылярыі вялікага князя ў Вялікім Княстве Літоўскім, хавальнік дзяржаўнай пячаткі (гіст.). **3.** Вышэйшы грамадзянскі чын у Расіі да 1917 г. (гіст.). ‖ *прым.* **ка́нцлерскі**, -ая, -ае.

**КАНЦО́ЎКА**, -і, *ДМ* -цо́ўцы, *мн.* -і, -цо́вак, *ж.* (спец.). **1.** Графічнае ўпрыгожанне ў канцы кнігі, раздзела. **2.** Заключная частка літаратурнага ці музычнага твора.

**КАНЦЫЛЯ́РСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* канцылярыя. **2.** Сухі, невыразны, насычаны словамі, характэрнымі для мовы дзелавых папер. *К. стыль.*

**КАНЦЫЛЯ́РШЧЫНА**, -ы, *ж.* (разм., неадабр.). Неапраўданы, празмерны фармалізм у вядзенні спраў.

**КАНЦЫЛЯРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Служачы канцылярыі. ‖ *ж.* **канцыляры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**КАНЦЫЛЯ́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Аддзел установы, заняты справаводствам, а таксама памяшканне гэтага аддзела. ◊ **Нябесная канцылярыя** (разм., жарт.) — пра сілы, якія быццам бы кіруюць надвор'ем. ‖ *прым.* **канцыля́рскі**, -ая, -ае. *К. работнік. Канцылярскія справы.*

**КАНЦЭНТРАВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вызначаецца высокай канцэнтрацыяй (у 2 знач.). *Канцэнтраваныя кармы. К. раствор.* **2.** Абагачаны (пра руды, горныя пароды). ‖ *наз.* **канцэнтрава́насць**, -і, *ж.*

**КАНЦЭНТРАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ру́ецца; *незак.* Збірацца, групавацца ў якім-н. адным месцы. ‖ *зак.* **сканцэнтрава́цца**, -ру́ецца. ‖ *наз.* **канцэнтра́цыя**, -і, *ж.*

**КАНЦЭНТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Збіраць, групаваць у адным месцы. *К. вытворчасць. К. войскі.* **2.** *перан.* Звяртаць, накіроўваць на што-н. *К. думкі. К. увагу.* **3.** *што.* Згушчаць, насычаць (спец.). *К. раствор.* **4.** *што.* Тое, што і *абагачаць* (у 2 знач.; спец.). *К. руду.* ‖ *зак.* **сканцэнтрава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **канцэнтра́цыя**, -і, *ж.*

**КАНЦЭНТРА́Т**, -у, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Гатовы сухі прадукт, спецыяльна апрацаваны для хуткага прыгатавання. *К. кашы. К. квасу.* **2.** Корм высокай пажыўнасці для жывёлы (мука, вотруб'е, макуха, зерне). **3.** Канцэнтраваная руда (спец.). ‖ *прым.* **канцэнтра́тны**, -ая, -ае.

**КАНЦЭНТРАЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **канцэнтрацыйны лагер** — месца масавага зняволення і фізічнага знішчэння ваеннапалонных, палітычных праціўнікаў, прадстаўнікоў нацыянальнасцей, якія праследуюцца, і пад. (у перыяд Другой сусветнай вайны ў фашысцкай Германіі і акупаваных ёю краінах, а таксама ў краінах з таталітарным рэжымам у час рэпрэсій) [першапачаткова лагер для ваеннапалонных].

**КАНЦЭНТРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* канцэнтраваць, канцэнтравацца. **2.** Колькасць растворанага рэчыва, якая змяшчаецца ў пэўнай колькасці раствору. *Раствор моцнай канцэнтрацыі.*

**КАНЦЭНТРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае агульны цэнтр; *проціл.* эксцэнтрычны[2]. *Канцэнтрычныя акружнасці.* ‖ *наз.* **канцэнтры́чнасць**, -і, *ж.*

**КАНЦЭПТУА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** *гл.* канцэпцыя. **2.** Які мае сур'ёзную самастойную канцэпцыю. *Гэта навуковая праца глыбока канцэптуальная.* ‖ *наз.* **канцэптуа́льнасць**, -і, *ж.*

**КАНЦЭ́ПЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (кніжн.). **1.** Сістэма поглядаў, тое ці іншае разуменне з'яў, працэсаў. **2.** Агульная задума, галоўная ідэя якога-н. твора, навуковай працы і пад. ‖ *прым.* **канцэптуа́льны**, -ая, -ае.

**КАНЦЭРАГЕ́Н**, -у, *м.* (спец.). Хімічнае рэчыва, якое садзейнічае ўзнікненню злаякаснай пухліны. ‖ *прым.* **канцэраге́нны**, -ая, -ае. *Канцэрагенныя рэчывы.*

**КАНЦЭ́РН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адна з форм аб'яднання розных прадпрыемстваў з высокім узроўнем канцэнтрацыі і цэнтралізацыі капіталаў і вытворчасці.

**КАНЦЭ́РТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Публічнае выкананне музычных і іншых твораў. *Эстрадны к. Даць к.* **2.** Буйны музычны твор для аднаго інструмента ў суправаджэнні аркестра. *К. для фартэпіяна з аркестрам.* ‖ *прым.* **канцэ́ртны**, -ая, -ае. *Канцэртная зала.*

**КАНЦЭРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак.* Выступаць у канцэртах, даваць канцэрты.

**КАНЦЭРТА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Артыст, які дае канцэрт (у 1 знач.). ‖ *ж.* **канцэрта́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**КАНЦЭРТМА́ЙСТАР**, -тра, *мн.* -тры, -траў, *м.* **1.** Піяніст-акампаніятар. **2.** Музыкант, які ўзначальвае адну са струнных груп аркестра. **3.** Саліст сімфанічнага або球 опернага аркестра. ‖ *прым.* **канцэртма́йстарскі**, -ая, -ае.

**КАНЦЭРЦІ́НА**, *нескл., н.* **1.** Музычны інструмент, які мае выгляд шасціграннага гармоніка. *Іграць на к.* **2.** Музычны твор тыпу канцэрта (у 2 знач.), які адрозніваецца ад апошняга меншай складанасцю і меншымі памерамі (спец.).

**КАНЦЭ́СІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* **1.** Дамова на здачу дзяржавай у эксплуатацыю прыватным прадпрымальнікам або іншаземным фірмам прамысловых прадпрыемстваў, прыродных багаццяў або іншых гаспадарчых аб'ектаў. *Міжнародныя канцэсіі. К. на будаўніцтва чыгункі.* **2.** Само прадпрыемства, арганізаванае на аснове такой дамовы. ‖ *прым.* **канцэсі́йны**, -ая, -ае.

**КАНЦЭСІЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Уладальнік канцэсіі. ‖ *прым.* **канцэсіяне́рскі**, -ая, -ае.

**КАНЧА́ТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Зменная частка слова, якая паказвае на сінтаксічную сувязь з іншымі словамі; флексія. *Склонавы к.*

**КАНЧАТКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не будзе больш пераглядацца, змяняцца; беспаваротны. *Канчатковае заключэнне камісіі. Канчатковае рашэнне.* **2.** Які з'яўляецца вынікам, завяршэннем або ажыццяўленнем чаго-н. *К. прадукт. К. вынік. Канчатковая мэта.* **3.** Поўны, даведзены да канца. *Канчатковая перамога.*

**КАНЧА́ЦЦА** *гл.* кончыцца.

**КАНЧА́ЦЬ** *гл.* кончыць.

**КАНЧУ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Раменны бізун.

**КАНЬЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Глыбокая вузкая даліна, размытая ракой. ‖ *прым.* **каньённы**, -ая, -ае.

**КАНЬКАБЕ́ЖАЦ**, -жца, *мн.* -жцы, -жцаў, *м.* Той, хто займаецца канькабежным спортам. ‖ *ж.* **канькабе́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак.

**КАНЬКАБЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да катання на каньках. *К. спорт.*

**КА́НЬКАЛА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -аў (разм.). Той, хто канькае, дакучае просьбамі, скаргамі.

**КА́НЬКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Назойліва прасіць аб чым-н., скардзіцца на што-н. ‖ *наз.* **ка́ньканне**, -я, *н.*

**КАНЬКІ́**, -о́ў, *адз.* канёк, -нька́, *м.* **1.** Спартыўны інвентар, які складаецца са спецыялізаванага абутку і прымацаваных да яго рухомых ці нерухомых вузкіх сталёвых палазкоў; прызначаны для катання на лёдзе. *Фігурныя к.* **2.** Канькабежны спорт (разм.). *Мой любімы спорт — к.* ‖ *прым.* **канько́вы**, -ая, -ае.

**КАНЬЯ́К**, -у́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Моцны алкагольны напітак з вінаграднага спірту. ‖ *прым.* **каньячны**, -ая, -ае.

**КАНЮ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Тое, што і *каня* (у 1 знач.).

**КАН'ЮНКТУ́РА**, -ы, *ж.* (кніжн.). Становішча, абставіны, што склаліся ў якой-н. галіне грамадскага жыцця. *Міжнародная к. Палітычная к.* ‖ *прым.* **кан'юнкту́рны**, -ая, -ае.

**КАН'ЮНКТУ́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Беспрынцыповы чалавек, які змяняе свае паводзіны ў залежнасці ад той ці іншай кан'юнктуры; прыстасаванец. ‖ *ж.* **кан'юнкту́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**КАН'ЮНКТЫ́ВА**, -ы, *ж.* (спец.). Слізістая абалонка вока, якая пакрывае ўнутраную паверхню павек і пярэднюю частку вочнага яблыка. ‖ *прым.* **кан'юнктыва́льны**, -ая, -ае. *К. мяшок вока.*

**КАН'ЮНКТЫВІ́Т**, -у, *М* -віце, *м.* Запаленне кан'юктывы. *Хранічны к.*

**КАНЮ́ШНЯ**, -і, *мн.* -і, -шань *і* -шняў, *ж.* Памяшканне для коней. ‖ *прым.* **каню́шневы**, -ая, -ае.

**КАНЮШЫ́НА**, -ы, *ж.* Кармавая травяністая расліна сямейства бабовых з трайчастым лісцем і шарападобнымі кветкамі. ‖ *прым.* **канюшы́нны**, -ая, -ае *і* **канюшы́навы**, -ая, -ае.

**КА́НЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* **1.** Драпежная птушка сямейства ястрабіных, якая жыве на балотах, сырых лугах, крык якой нагадвае слова «піць»; сарыч, канюк. *Плачуць кані над балотам, просяць піць.* **2.** Назва кнігаўкі ў некаторых мясцовасцях Беларусі (разм.). *Енчыць, як к. на дождж.*

**КАНЯВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па конегадоўлі.

**КАНЯ́КА**, -і, *ДМ* -няцы, *Т* -ай (-аю), *ж.* (разм.). Пра слабага заезджанага каня.

**КАП...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. капітальны, напр.: *капбудаўніцтва, капрамонт.*

**КА́ПА**, -ы, *мн.* -ы, кап, *ж.* Узорыстае пікейнае пакрывала на ложак. ‖ *прым.* **ка́павы**, -ая, -ае.

**КАПА́**[1], -ы́, *мн.* ко́пы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) капы́, коп, *ж.* **1.** Сена, снапы, складзеныя конусам. *Атава ў копах.* **2.** *перан.* Пра густыя пышныя валасы. *К. валасоў.* ‖ *памянш.* **ко́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.*

**КАПА́**[2], -ы́, *мн.* ко́пы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) капы́, коп, *ж.* Даўнейшая адзінка лічэння: шэсцьдзясят штук чаго-н. *К. снапоў.*

**КАПАКЛА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сельскагаспадарчая машына для збору і складання ў копы сена або саломы.

**КАПА́Л**, -у, *м.* (спец.). Цвёрдая выкапнёвая смала расліннага паходжання, якая выкарыстоўвалася для прыгатавання лакаў. ‖ *прым.* **капа́лавы**, -ая, -ае.

**КАПА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца капаннем, копкай чаго-н. ‖ *ж.* **капа́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**КА́ПАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дзіцячы, а таксама жаночы галаўны ўбор з завязкамі пад падбародкам. ‖ *прым.* **ка́парны**, -ая, -ае.

**КАПАТА́Ж**, -у, *м.* (спец.). Від аварыі, пры якой самалёт перакульваецца цераз насавую частку пры пасадцы або ўзлёце. ‖ *прым.* **капата́жны**, -ая, -ае.

**КАПАТЛІ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Марудлівы, непаваротлівы. ‖ *наз.* **капатлі́васць**, -і, *ж.*

**КАПАЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ці́ць; *незак.* (разм.). Ка́паць часта, буйнымі кроплямі.

**КАПА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *у чым.* Рыцца, капаючы. *К. ў градках. К. ў пяску.* **2.** *перан., у чым.* Залішне старанна, дэталёва аналізаваць, абдумваць што-н., унікаць у што-н. *К. ў душы.* **3.** *з чым і без дап.* Марудзіць, павольна рабіць якую-н. справу. *К. з перакладваннем кніг.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паддавацца капанню. *Пасля дажджу зямля лягчэй капаецца.* ‖ *зак.* **закапа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (да 3 знач.). ‖ *наз.* **капа́нне**, -я, *н.*

**КА́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Падаць кроплямі. *Днём капала* (безас.) *са стрэх.* **2.** *што.* Наліваць, разліваць кроплі чаго-н. на што-н. *К. лякарства ў шклянку.* **3.** *перан., на каго.* Нагаворваць, тайна паведамляць (разм.). ‖ *зак.* **нака́паць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 2 і 3 знач.). ‖ *аднакр.* **ка́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні.

**КАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак., што.* **1.** Размякчаць, рыхліць верхні слой глебы, аддзяляючы і падымаючы (лапатай, матыкай і пад.). *К. агарод.* **2.** Выкідваючы, выбіраючы зямлю, рабіць паглыбленне. *К. яму.* **3.** Выкопваць, даставаць што-н. з зямлі. *К. бульбу.* ◊ **Капаць яму** — рыхтаваць пагібель, тварыць зло каму-н. ‖ *зак.* **вы́капаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 2 і 3 знач.). ‖ *аднакр.* **капну́ць**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1 знач.) *і* **капяну́ць**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -пеняце́, -ну́ць; -ні́ (да 1 знач.; разм.). ‖ *наз.* **капа́нне**, -я, *н. і* **ко́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* ‖ *прым.* **капа́льны**, -ая, -ае (спец.).

**КАПА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** Той, хто займаецца капаннем зямлі; землякоп. **2.** Прылада для капання зямлі, выкопвання караняплодаў і пад. ‖ *прым.* **капа́цкі**, -ая, -ае.

**КАПЕ́ЕЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* капейка. **2.** Які каштуе танна, нядорага. *Капеечная цацка.* **3.** *перан.* Залішне дробязны, скупы. *Капеечная натура.* ‖ *наз.* **капе́ечнасць**, -і, *ж.*

**КАПЕ́Ж**, капяжу́ *і* капяжа́, *м.* **1.** -у́. Падзенне кропель талага снегу са стрэх, дрэў, а таксама самі гэтыя кроплі. *Сярод дня пачуўся к.* **2.** -а́, *мн.* капяжы́, -о́ў, *м.* Ніжні край страхі, даху, які выдаецца над сцяной. ‖ *прым.* **капе́жны**, -ая, -ае.

**КАПЕ́ЙКА**, -і, *ДМ* -пе́йцы, *мн.* -і, -пе́ек, *ж.* **1.** Дробная манета, адна сотая рубля. *Рассыпаць капейкі.* **2.** *зб.* Грошы, грашовыя сродкі. ◊ **Без капейкі** — без якіх-н. сродкаў існавання. **Да (апошняй) капейкі** — без астатку патраціць, заплаціць, атрымаць і пад. **Жывая капейка** — пра ўсё, што дае даход. **Капейка ў капейку** — пры падліку грошай: абсалютна дакладна, колькі патрабуецца. **Ні капейкі (за душой)** — зусім няма грошай. ‖ *памянш.* **капе́ечка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ◊ **Абысціся ў капеечку** — дорага каштаваць. ‖ *прым.* **капе́ечны**, -ая, -ае. *Капеечная манета.*

**КАПЕЛЬДЫ́НЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тэатральны служачы, які правярае білеты і паказвае гледачам месцы ў зале. ‖ *ж.* **капельды́нерка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **капельды́нерскі**, -ая, -ае.

**КА́ПЕЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* **1.** Маленькая кропля. *Капелькі расы. Выпіць да капелькі.* **2.** *адз., перан., чаго.* Самая малая колькасць чаго-н. (разм.). *У слоіку засталася к. малака.*

**КАПЕЛЬМА́ЙСТАР**, -тра, *мн.* -тры, -траў, *м.* Кіраўнік хору або аркестра; дырыжор. ‖ *прым.* **капельма́йстарскі**, -ая, -ае.

**КА́ПЕЛЬНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Тое, што і *кропельніца.*

**КА́ПЕЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Тое, што і *кропельны. Капельнае ўвядзенне лякарства.*

**КА́ПЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыватнаўласніцкае судна, якое займалася (да сярэдзіны 19 ст.) з ведама свайго ўрада захопам гандлёвых суднаў праціўніка і нейтральных краін, што перавозілі кантрабандныя грузы для ваюючай краіны. **2.** Уладальнік такога судна.

**КА́ПЕРС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Паўднёвая паўхмызняковая расліна, якая сцелецца па зямлі. **2.** *мн.* Пупышкі гэтай расліны, якія ў марынаваным выглядзе ўжываюцца як прыправа. ‖ *прым.* **ка́персавы**, -ая, -ае. *Сямейства каперсавых* (наз.).

**КАПЕ́Ц**, -пца́, *мн.* -пцы́, -пцо́ў, *м.* **1.** Месца для захавання на зіму агародніны. *К. бульбы.* **2.** Насып са слупам як межавы знак. *На мяжы лесу з полем стаялі капцы.* **3.** Насып, курган. **4.** звычайна *мн.* Смерць, пагібель, канец (разм.). *Тут яму і капцы.* ‖ *прым.* **капцо́вы**, -ая, -ае (да 1—3 знач.).

**КАП'Ё**, -я́, *мн.* ко́п'і *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) кап'і́, ко́п'яў, *н.* **1.** Даўнейшая колючая або кідальная зброя ў форме доўгага дрэўка з вострым металічным наканечнікам. **2.** Лёгкаатлетычны снарад (у 3 знач.), а таксама спартыўная дысцыпліна, звязаная з кіданнем гэтага снарада. *Кіданне кап'я.* ◊ **Ламаць коп'і** — спрачацца з-за чаго-н., адстойваць сваю думку.

**КАПЁР**, -пра́, *мн.* -пры́, -про́ў, *м.* (спец.). Збудаванне над шахтным ствалом для ўстанаўлення пад'ёмніка. ‖ *прым.* **капро́вы**, -ая, -ае.

**КАПІІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які знімае копіі з дакументаў, рукапісаў (уст.). *Працаваць капіістам.* **2.** Мастак, які робіць копіі карцін.

**КАПІЛЯ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Трубачка з вельмі вузкім унутраным ка-

налам. **2.** Самы тонкі крывяносны сасуд. || *прым.* **капіля́рны**, -ая, -ае. *К. ціск. К. сасуд.*

**КАПІЛЯ́РНАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Уласцівасць вадкасцей паднімацца або апускацца па капілярах.

**КАПІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -пі́раваны, **КАПІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -пірава́ны *і* **КАПІЯВА́ЦЬ**, -пію́ю, -пію́еш, -пію́е; -піява́ны; *незак.* **1.** *што.* Знімаць, рабіць копію з чаго-н. *К. дакумент.* **2.** *каго-што.* Падрабляць чые-н. рухі, міміку, слепа пераймаць што-н. *К. артыста.* || *зак.* **скапі́раваць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -пірава́ны *і* **скапіява́ць**, -пію́ю,-пію́еш, -пію́е; -пію́й; -піява́ны. || *наз.* **капірава́нне**, -я, *н.*, **капіява́нне**, -я, *н. і* **капіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* (да 1 знач.). || *прым.* **капірава́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **капіро́вачны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Капіравальны апарат. Капіровачныя работы.*

**КАПІРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па капіраванні. || *ж.* **капіро́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**КАПІТА́Л**, -у, *м.* **1.** Вартасць, якая ў выніку выкарыстання наёмнай рабочай сілы прыносіць прыбавачную вартасць. *Прамысловы к. Фінансавы к. Пераменны к. Пастаянны к.* **2.** звычайна *мн.* Грошы, вялікая сума грошай (разм.). *Купіў бы, ды капіталаў не хапае.* ◊ **Мёртвы капітал** — каштоўнасці, маёмасць, якія не прыносяць даходу.

**КАПІТАЛАЎКЛАДА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (спец.). Затраты на стварэнне новых, рэканструкцыю і пашырэнне дзеючых асноўных фондаў.

**КАПІТАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Ператварыць (ператвараць) прыбавачную вартасць у капітал (у 1 знач.). || *наз.* **капіталіза́цыя**, -і, *ж.*

**КАПІТАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Грамадска-эканамічны лад, які змяніў сабой феадалізм і ў аснове якога ляжаць розныя формы прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці, а грамадства складаюць дзве асноўныя групы — уладальнікі сродкаў вытворчасці і наёмныя рабочыя. *Эпоха капіталізму.* || *прым.* **капіталісты́чны**, -ая, -ае.

**КАПІТАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Уласнік капіталу, сродкаў вытворчасці, які выкарыстоўвае наёмную працу. **2.** Багаты, разбагацелы чалавек (разм., жарт.). || *ж.* **капіталі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 2 знач.). || *прым.* **капіталісты́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАПІТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Грунтоўны, асноўны, карэнны, вельмі важны. *Капітальнае даследаванне.* ○ **Капітальная сцяна** — асноўная сцяна, якая служыць апорай для даху. **Капітальныя ўкладанні** (спец.) — тое, што і *капіталаўкладанне.* || *наз.* **капіта́льнасць**, -і, *ж.*

**КАПІТА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Афіцэрскае званне або чын, а таксама асоба, якая мае гэта званне. *К. медыцынскай службы. К.-лейтэнант. К. 3-га рангу.* **2.** Камандзір судна. *К. карабля.* **3.** Кіраўнік спартыўнай каманды. *К. валейбольнай каманды.* || *прым.* **капіта́нскі**, -ая, -ае. *К. мосцік.*

**КАПІТУЛЯВА́ЦЬ**, -люю, -люеш, -люе; -лю́й; *зак.* і *незак.* **1.** Здацца (здавацца), згадзіўшыся на капітуляцыю, адмовіўшыся ад барацьбы. *Безагаворачна к.* **2.** *перан.* Адступіць (адступаць) перад цяжкасцямі, перашкодамі; прызнаць (прызнаваць) сваё бяссілле, слабасць. *К. перад цяжкасцямі.*

**КАПІТУЛЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто капітулюе, адмаўляецца ад ранейшай пазіцыі. || *прым.* **капітуля́нцкі**, -ая, -ае.

**КАПІТУЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Спыненне ваенных дзеянняў і здача пераможцу на прадыктаваных ім умовах. *Безагаворачная к.* **2.** *перан.* Адступленне ад прынцыповай абароны сваіх поглядаў, прызнанне свайго бяссілля ў чым-н.

**КАПІТЭ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* (спец.). Верхняя частка калоны, слупа або пілястры. || *прым.* **капітэ́льны**, -ая, -ае.

**КАПІЯВА́ЦЬ** *гл.* капіраваць.

**КА́ПІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Язычніцкі храм, культавае збудаванне.

**КАПЛІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ліц, *ж.* Невялікі царкоўны або касцельны будынак з абразамі без алтара; малельня. || *памянш.* **каплі́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* || *прым.* **каплі́чны**, -ая, -ае.

**КАПЛУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Пакладаны певень, якога адкормліваюць на мяса.

**КА́ПЛЯ**, -і, *мн.* -і, -пель, *ж.* Тое, што і *кропля.*

**КА́ПНУЦЬ** *гл.* ка́паць.

**КАПНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** *гл.* капа́ць. **2.** *перан.* Унікнуць у што-н. *Толькі капні — знойдзеш недаробкі і хібы рамонту.*

**КАПО́Т**[1], -а, *М* -по́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Адкідная накрыўка розных механізмаў *К. аўтамабіля.* || *прым.* **капо́тны**, -ая, -ае.

**КАПО́Т**[2], -а, *М* -по́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Жаночае плацце свабоднага пакрою; род халата.

**КАПРА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Воінскае званне малодшага камандзіра ў арміях некаторых краін, а таксама асоба, якая мае гэта званне. || *прым.* **капра́льскі**, -ая, -ае.

**КАПРО́ВЫ** *гл.* капёр.

**КАПРО́Н**, -у, *м.* Штучнае валакно высокай трываласці, а таксама тканіна з гэтага валакна. || *прым.* **капро́навы**, -ая, -ае. *Капронавыя панчохі.*

**КАПРЫ́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Беспадстаўнае, але настойлівае жаданне, патрабаванне чаго-н., недарэчная задума, дзівацтва. *Дзіцячы к.* **2.** *перан., чаго.* Што-н. нечаканае, выпадковае ў той ці іншай сферы жыцця. *К. моды. К. прыроды.* || *прым.* **капры́зны**, -ая, -ае. *Капрызнае надвор'е.*

**КАПРЫ́ЗА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -ры́з *і* -аў (разм.). Капрызны чалавек, капрызнае дзіця.

**КАПРЫ́ЗІЦЬ**, -ры́жу, -ры́зіш, -ры́зіць; *незак.* Паводзіць сябе капрызна, быць капрызным. || *зак.* **пакапры́зіць**, -ры́жу, -ры́зіш, -ры́зіць.

**КАПРЫЗНІ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Капрызны чалавек, капрыза. || *ж.* **капрызні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**КАПРЫЗНІ́ЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *капрызіць.*

**КАПРЫ́ЧЫА**, *нескл., н.* (спец.). Віртуозны музычны твор, які вызначаецца жывасцю, нечаканымі і арыгінальнымі пераходамі.

**КА́ПСУЛА**, -ы, *мн.* -ы, -сул, *ж.* **1.** Абалонка з жэлаціну, крухмалу або іншага рэчыва для вадкіх ці парашкападобных лекаў. *Валідол у капсулах.* **2.** Назва злучальнай абалонкі ў розных органаў або іх частак (спец.). **3.** Частка касмічнага лятальнага апарата. || *прым.* **ка́псульны**, -ая, -ае.

**КА́ПСУЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* У патронах, снарадах: каўпачок з выбуховым рэчывам, якое загараецца ад удару. || *прым.* **ка́псульны**, -ая, -ае.

**КАПТА́Н** *і* **КАФТА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Даўнейшая двухбортная мужчынская і жаночая верхняя адзежына з доўгімі поламі і падоўжанымі рукавамі. || *прым.* **капта́нны**, -ая, -ае *і* **кафтанны**, -ая, -ае.

**КАПТУ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Дзіцячы або жаночы вязаны галаўны ўбор, які завязваецца пад падбародкам; капар. **2.** Невялікі дах, заслона, навес над чым-н. || *прым.* **капту́рны**, -ая, -ае.

**КАПТУ́Р** *гл.* коптур.

**КАПУ́СНІК**, -у *і* -а, *м.* **1.** -у, *зб.* Капуснае лісце. **2.** -а, *мн.* -і, -аў, *перан.* Вечарынка ў акцёраў, студэнтаў і іншых з аматарскімі нумарамі жартаўліва-парадыйнага характару. *Студэнцкі к.*

**КАПУ́СНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Белы матылёк, вусень якога есць капусту.

**КАПУ́СНІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -нішч *і* -аў, *н.* Поле, з якога сабрана капуста.

**КАПУ́СТА**, -ы, *ДМ* -сце, *ж.* **1.** Агародная расліна, лісце якой звіваецца ў качаны, а таксама самі качаны. *Шаткаваць капусту.* **2.** Вараная страва з крышанага качана гэтай расліны. *Міска гарачай капусты.* ○ **Марская капуста** — марскія водарасці, якія ўжыв. як ежа і як лячэбны сродак. || *прым.* **капу́сны**, -ая, -ае.

**КАПУ́Т**, *нескл., м., у знач. вык., каму-чаму* (разм.). Канец, гібель. *К. усяму ліхому.*

**КАПУ́ХА**, -і, *ДМ* -пу́се, *мн.* -і, -пу́х, *ж.* (разм.). Жанчына, якая ўсё робіць марудна, вяла.

**КАПУЦЫ́Н**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Манах рымска-каталіцкага францысканскага ордэна, які носіць плашч з капюшонам. || *ж.* **капуцы́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **капуцы́нскі**, -ая, -ае.

**КАПУЦЫ́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Род амерыканскіх малпаў з шырокімі насамі і доўгімі валасамі на галаве ў выглядзе капюшона.

**КАПЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Службовая асоба ў арміі, у абавязкі якой уваходзіць захаванне і выдача маёмасці, абмундзіравання і інш. ‖ *прым.* **капцёрскі**, -ая, -ае.

**КАПЦЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (разм.). Склад маёмасці ў вайсковай часці, а таксама на будоўлі, у цэху, гаражы.

**КАПЦО́ВЫ** *гл.* капец.

**КАПЦЮ́Р** *гл.* кіпцюр.

**КАПЦЮ́РНЫ** *гл.* кіпцюр.

**КАПШУ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Мяшочак для тытуню, які сцягваецца шнурком; кісет. *Насыпаў махоркі ў к.*

**КАПЫ́Л**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Кавалак дрэва ў форме ступні, на якім шавец робіць абутак. **2.** Адзін з драўляных брускоў, якія ўстаўляюцца ў палазы і служаць апорай для кузава саней. ◊ **Гнуць на свой капыл** (разм.) — рабіць па-свойму, не слухаючы думкі іншых. **Усё (усе) на адзін капыл** (разм.) — аднолькава, аднолькавымі, падобна, падобнымі (парабіць, зрабіць, атрымацца).

**КАПЫЛЛЕ**, -я, *н., зб.* Капылы.

**КАПЫ́Т**, -á, *М* -пыцé, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Рагавое ўтварэнне на канцы ног у некаторых млекакормячых. ‖ *памянш.* **капыто́к**, -ткá, *мн.* -ткí, -ткóў, *м.* ‖ *прым.* **капы́тны**, -ая, -ае. *Атрад капытных* (наз.).

**КАПЫ́ЦІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ціцца; *незак.* Спатыкацца (пра каня). ‖ *зак.* **скапы́ціцца**, -ціцца.

**КАПЭ́ЛА**, -ы, -пэ́л, *ж.* Вялікая музычная група выканаўцаў — хор у спалучэнні з аркестрам. *Дзяржаўная харавая к.*

**КАПЮШО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адкідны галаўны ўбор, прымацаваны ззаду да каўняра верхняга адзення. *Паліто з капюшонам.* ‖ *прым.* **капюшо́нны**, -ая, -ае.

**КАПЯЛЮ́Ш**, капелюшá, *мн.* капелюшы́, капелюшóў, *м.* Галаўны мужчынскі ўбор з палямі, жаночы — розных фасонаў. *Саламяны к.* ‖ *памянш.* **капялю́шык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **капялю́шны**, -ая, -ае.

**КАПЯЛЮ́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Майстар па вырабе капелюшоў. ‖ *ж.* **капялю́шніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**КАПЯНУ́ЦЬ** *гл.* капáць.

**КА́РА**, -ы, *ж.* Суровае пакаранне за правіннасць. *К. за злачынства.*

**КАРА́**, -ы́, *ж.* **1.** Паверхневая частка ствала, галін і кораня дрэвавых раслін. *К. бярозы.* **2.** *чаго* або *якая.* Верхні цвёрды слой на чым-н. *Ледзяная к.* ○ **Зямная кара** — верхняя цвёрдая абалонка Зямлі. **Кара вялікіх паўшар'яў галаўнога мозга; кара галаўнога мозга** — паверхневы слой галаўнога мозга ў вышэйшых пазваночных і чалавека. ‖ *прым.* **караві́**, -áя, -óе.

**КАРАБА́ТЫ**, -ая, -ае. Няроўны, пагнуты, скрыўлены. *Карабатая дошка.* ‖ *наз.* **караба́тасць**, -і, *ж.*

**КАРАБА́ЦІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ціцца; *незак.* Рабіцца карабатым, выгінацца, скрыўляцца. *Фанера на сонцы карабаціцца.* ‖ *зак.* **пакараба́ціцца**, -ціцца *і* **скараба́ціцца**, -ціцца.

**КАРАБА́ЦІЦЬ**, -бáчу, -бáціш, -бáціць; *незак.* **1.** *што.* Рабіць карабатым. **2.** *перан., каго (што).* Выклікаць непрыемнае пачуццё. ‖ *зак.* **пакараба́ціць**, -бáчу, -бáціш, -бáціць; -бáчаны (да 1 знач.) *і* **скараба́ціць**, -бáчу, -бáціш, -бáціць; -бáчаны (да 1 знач.).

**КАРАБЕ́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Дробны гандляр, які разносіў па вёсках тавары (мануфактуру, галантарэю, дробныя рэчы і інш.).

**КАРАБЕ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *караблебудаўнік.*

**КАРАБЕ́ЛЬ**, -бля́, *мн.* -блí, -блёў, *м.* **1.** Вялікае марское судна. *Ваенны к. Акіянскі к.* **2.** Лятальны апарат. *Касмічны к.* ◊ **Спаліць свае караблі** (кніжн.) — рашуча парваць з мінулым. ‖ *памянш.* **кара́блік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.). *Пускаць папяровыя караблікі.* ‖ *прым.* **карабе́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). ○ **Карабельны лес** — лес з высокіх мачтавых дрэў, прыгодных для караблебудавання.

**КАРАБЕ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Уладальнік карабля; марак (уст.). **2.** Тое, што і *караблебудаўнік* (разм.).

**КАРАБІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вінтоўка з пакарочаным ствалом. ‖ *прым.* **карабі́навы**, -ая, -ае.

**КАРАБІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Механічная зашчапка, зажым. *К. паваdка.*

**КАРАБІНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У Заходняй Еўропе і Расіі да сярэдзіны 19 ст.: узброены карабінам салдат-стралок. **2.** Жандар у Італіі. ‖ *прым.* **карабіне́рны**, -ая, -ае. *К. полк.*

**КАРА́БКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца, *перан.* Падымацца, чапляючыся нагамі і рукамі за што-н.; караскацца. *К. на ўзгорак. К. на дрэва.* ‖ *зак.* **ускара́бкацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**КАРАБЛЕБУДАВА́ННЕ**, -я, *н.* Будаванне суднаў, а таксама навука аб іх будаванні. ‖ *прым.* **караблебудаўні́чы**, -ая, -ае.

**КАРАБЛЕБУДАЎНІ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Спецыяліст па караблебудаванні.

**КАРАБЛЕВАДЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* Майстэрства кіравання ходам карабля, а таксама шэраг навуковых дысцыплін і практычных прыёмаў, на якіх яно заснавана. *Майстэрства караблеваджэння.*

**КАРАБЛЕКРУШЭ́ННЕ**, -я, *н.* Гібель карабля ў моры. *Пацярпець к.*

**КАРАБО́К**, -бкá, *мн.* -бкí, -бкóў, *м.* (разм.). Невялікая стандартная каробка для запалак. *К. запалак.* ‖ *прым.* **карабко́вы**, -ая, -ае.

**КАРАВА́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Вясельны абрадавы пірог круглай формы або вялікая булка, спечаная для якой-н. урачыстасці, свята. *Частаваць караваем.* ‖ *прым.* **карава́йны**, -ая, -ае.

**КАРАВА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Група ўючных жывёл, якія перавозяць грузы і людзей (у пустыні, у стэпе). *К. вярблюдаў.* **2.** Група суднаў, якія ідуць адно за адным. ‖ *прым.* **карава́нны**, -ая, -ае.

**КАРА́ВЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *незак.* Тое, што і *каравіцца.*

**КАРА́ВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -віцца; *незак.* Станавіцца каравым ад бруду (у 1 знач.); каравець.

**КАРАВО́КІ**, -ая, -ае. З карымі вачамі.

**КАРАВУ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вайсковая ўзброеная варта. *Выклікаць к.* **2.** Абавязкі па ахове чаго-н. *Несці к. Узяць каго-н. пад к.* **3.** *у знач. выкл.* Заклік на дапамогу пры небяспецы (разм.). *К.! Ратуйце!* ◊ **Узяць на каравул** — аддаць пашану асобым ружэйным прыёмам. ‖ *прым.* **караву́льны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *К. начальнік. Змяніць каравульных* (наз.).

**КАРА́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Каляны ад засохлай гразі. *Каравая ануча.* **2.** Нягладкі, скрыўлены, шарахаваты, загрубелы. *Каравыя рукі.* **3.** *перан.* Няскладны, няўмелы, груба выкананы. *Каравыя выразы.* ‖ *наз.* **кара́васць**, -і, *ж.*

**КАРАВЯ́К**, -у́, *м.* (разм.). Каровін гной (у 2 знач.). *Каравяком з глінаю абмазваюць яблыні.*

**КАРАГА́Ч**, -á *і* (пра драўніну і *зб.*) -у́, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Паўднёвае дрэва ці куст сямейства вязавых; бераст. ‖ *прым.* **карага́чавы**, -ая, -ае.

**КАРАГО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Калектыўны танец у славянскіх народаў, удзельнікі якога з песнямі ходзяць па крузе (звычайна ўзяўшыся за рукі), а таксама ўдзельнікі такога танца. *Вадзіць к. Кружыцца ў карагодзе.* **2.** Круг, утвораны людзьмі, якія ўзяліся за рукі падчас гульні, танца і пад. *Дзеці сталі ў к. вакол ёлкі.* ‖ *прым.* **караго́дны**, -ая, -ае.

**КАРАЕ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дробны жук-шкоднік, які грызе драўніну і кару дрэў.

**КАРАЗІ́ЙНЫ** *гл.* карозія.

**КАРАІ́МЫ**, -аў, *адз.* -і́м, -а, *м.* Народнасць цюркскай моўнай групы, якая жыве ў Крыме, Заходняй Украіне, Польшчы, а таксама ў Літве. ‖ *ж.* **караі́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак. ‖ *прым.* **караі́мскі**, -ая, -ае.

**КА́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* (разм.) Задняя частка шыі ў жывёлы і чалавека. ◊ **Браць (узяць) за карак** — прыцягнуць да адказнасці. **Гнаць у карак** — прымушаць хутка рабіць што-н, падганяць. **Сядзець на карку** — быць на ўтрыманні ў каго-н., жыць на чые-н. сродкі.

**КАРАКАЛПА́КІ**, -аў, *адз.* -пáк, -а, *м.* Народнасць цюркскай моўнай групы, якая складае асноўнае карэннае насельніцтва Рэспублікі Каракалпакстан, што ўваходзіць у склад Узбекістана. ‖ *ж.* **каракалпа́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **каракалпа́кскі**, -ая, -ае.

**КАРАКА́ЦІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ціц, *ж.* **1.** Марскі малюск з групы галаваногіх, які пры небяспецы выпускае фарбавальнае

рэчыва. **2.** *перан.* Пра няўклюднага чалавека з кароткімі нагамі (разм.).

**КАРА́КІ**, -аў, *адз.* кара́к, -а, *м.* Народнасць, якая складае асноўнае карэннае насельніцтва Камчацкага краю. ‖ *ж.* **кара́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **кара́кскі**, -ая, -ае.

**КАРА́КУЛІ**, -ляў, *адз.* кара́куля, -і, *ж.* Неразборлівыя, няўмела ці няўдала напісаныя літары. *У сшытку адны к.*

**КАРА́КУЛЬ**, -ю, *м.* Каштоўныя шкуркі ягнят каракульскіх авечак. ‖ *прым.* **кара́кулевы**, -ая, -ае. *Каракулевае футра.*

**КАРА́КУЛЬСКІ**, -ая, -ае. У выразе: **каракульская авечка** — каштоўная парода авечак, шкуркі ягнят якой ідуць на выраб каракулю і каракульчы.

**КАРАКУЛЬЧА́**, -ы́, *ж.* Мех са шкурак неданошаных ягнят каракульскіх авечак. *Паліто з каракульчы.* ‖ *прым.* **каракульчо́вы**, -ая, -ае.

**КАРАКУЛЯВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па каракуляводстве.

**КАРАКУЛЯВО́ДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне каракульскіх авечак як галіна жывёлагадоўлі. ‖ *прым.* **каракуляво́дчы**, -ая, -ае.

**КАРАКУ́РТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ядавіты павук, распаўсюджаны ў пустынях Сярэдняй Азіі і ў стэпах Крыма.

**КАРА́Л**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Марская жывёліна, якая жыве нерухомымі калоніямі на скалах; род паліпаў. **2.** -у. Вапнавае адкладанне некаторых відаў гэтых жывёлін — чырвоны, ружовы або белы камень, які пасля апрацоўкі выкарыстоўваецца як упрыгожанне. *Пацеркі з каралаў.* ‖ *прым.* **кара́лавы**, -ая, -ае. *Каралавыя рыфы.*

**КАРА́ЛАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* карал. **2.** Ярка-чырвоны, колеру карала. *Шалік каралавага колеру.*

**КАРАЛЕ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -ле́ў, *ж.* **1.** *гл.* кароль. **2.** Жонка караля (у 1 знач.). **3.** У шахматах: тое, што і *ферзь* (разм.). **4.** *перан., чаго.* Пра жанчыну, якая вылучаецца як лепшая сярод іншых. *К. прыгажосці. К. балю.*

**КАРАЛЕ́ВІЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.; нар.-паэт.). Сын караля (звычайна ў казках).

**КАРАЛЕ́ЎНА**, -ы, *мн.* -ы, -ле́вен *і* -ле́ўнаў, *ж.* Дачка караля (звычайна ў казках).

**КАРАЛЕ́ЎСКІ** *гл.* кароль.

**КАРАЛЕ́ЎСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Дзяржава, на чале якой стаіць кароль (у 1 знач.).

**КАРА́ЛІ**, -яў, *адз.* кара́ля, -і, *ж.* Пацеркі з каралавых або іншых каштоўных камянёў.

**КАРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (афіц.). Які падлягае пакаранню, цягне за сабой пакаранне. *К. ўчынак.* ‖ *наз.* **кара́льнасць**, -і, *ж.*

**КАРАМБО́ЛЬ**, -ю, *м.* У більярдзе: рыкашэтны ўдар шара, які адскочыў ад другога шара, па трэцім. *Зрабіць к.* ‖ *прым.* **карамбо́льны**, -ая, -ае.

**КАРАМЕ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** *зб.* Гатунак цвёрдых цукерак, ледзянцовых ці з начынкай. *Ледзянцовая к.* **2.** Палены цукар для падфарбоўвання кандытарскіх вырабаў. **3.** Падпражаны солад для падфарбоўвання піва. ‖ *прым.* **караме́льны**, -ая, -ае.

**КАРАМЕ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* (разм.). Адна цукерка карамелі.

**КАРА́Н** -а, *м.* (з вялікай літары). Свяшчэнная кніга, у якой змяшчаюцца догматы і палажэнні мусульманскай рэлігіі.

**КАРАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Правесці (праводзіць) цырымонію каранацыі. *К. на царства.* ‖ *звар.* **каранава́цца**, -ну́юся, -ну́ешся, -ну́ецца; -ну́йся. ‖ *наз.* **каранава́нне**, -я, *н.*

**КАРАНА́РНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае адносіны да сасудаў, што сілкуюць сардэчную мышцу. *К. кровазварот.*

**КАРАНА́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае тоўстыя, моцныя карані. *К. дуб.* **2.** Невысокі, моцнага целаскладу, шыракаплечы; каржакаваты. *Каранастая фігура.* ‖ *наз.* **карана́стасць**, -і, *ж.*

**КАРАНА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Урачыстая цырымонія ўскладання кароны на манарха, які ўступае на прастол. ‖ *прым.* **каранацы́йны**, -ая, -ае.

**КАРАНДА́Ш**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Тое, што і *аловак. Каляровыя карандашы.* ◊ **Браць на карандаш** — звяртаць на што-н. увагу, запісваць для памяці. ‖ *прым.* **каранда́шны**, -ая, -ае.

**КАРАНЁВЫ** *гл.* корань.

**КАРАНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ні́цца; *незак.* **1.** Пускаць карані. **2.** *у чым.* Мець сваёй асновай, крыніцай. *Прычына караніцца ў іншым.* **3.** *у кім-чым.* Быць уласцівым каму-, чаму-н., знаходзіцца ў кім-, чым-н. *Любоў да малой радзімы караніцца ў кожным з нас.*

**КАРАННІ́К**, -а, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Сярэдні конь у тройцы, які запрагаецца ў аглоблі ў адрозненне ад прысцяжных. *У гэтай тройцы к. быў самым надзейным канём.*

**КАРАНТЫ́Ш**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Пра чалавека малога росту.

**КАРАНЦІ́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Часовая ізаляцыя заразных хворых і асоб, якія былі ў кантакце з такімі хворымі. **2.** Санітарны пункт для агляду людзей і грузаў, якія прыбылі з заражанай мясцовасці. ‖ *прым.* **каранці́нны**, -ая, -ае.

**КАРАНЯПЛО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Расліна з тоўстым мясістым коранем, якая ідзе ў ежу або на корм скаціне. ‖ *прым.* **караняпло́дны**, -ая, -ае.

**КАРАПУ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., жарт.). Пра малое дзіця. ‖ *памянш.-ласк.* **карапу́зік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**КАРА́СКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Падымацца, чапляючыся нагамі і рукамі за што-н. *К. на дрэва.* ‖ *зак.* **ускара́скацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**КАРА́СЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Прэснаводная рыба сямейства карпавых з чырванаватымі плаўнікамі. ‖ *прым.* **карасёвы**, -ая, -ае *і* **карасі́ны**, -ая, -ае. *Карасёвая юшка.*

**КАРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мера масы каштоўных камянёў, роўная 0,2 грама. ‖ *прым.* **кара́тны**, -ая, -ае.

**КАРАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што* (разм.). Бавіць час так, каб ён праходзіў незаўважна. *К. вечары.* ‖ *зак.* **скарата́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**КАРАТКА...** (*гл.* **каротка...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «каротка...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *каратканогі, караткахвосты.*

**КАРАТКАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Крыху карацейшы, чым трэба. *Караткаватыя рукавы.*

**КАРАТКАХВА́ЛЕВЫ**, -ая, -ае. Які працуе на кароткіх радыёхвалях. *Караткахвалевая радыёстанцыя.*

**КАРАТКАХВО́СТЫ**, -ая, -ае. З кароткім хвастом. *К. заяц.*

**КАРАТКАШЭ́РСНЫ**, -ая, -ае. З кароткай шэрсцю. *Караткашэрсная парода авечак.*

**КАРАТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца каратэ.

**КАРАТЭ́**, *нескл., н.* Спартыўная барацьба, якая выкарыстоўвае эфектыўныя прыёмы японскай сістэмы самаабароны без зброі, заснаванай на ўдарах рукамі і нагамі па найбольш уразлівых месцах цела чалавека.

**КАРАЦЕ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* Сорт морквы з кароткім акруглым коранем; мышатка.

**КАРАЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ée; *незак.* Станавіцца карацейшым, менш працяглым у прасторы або ў часе. *Пад восень дні карацеюць.*

**КАРАЦІ́Н**, -у, *м.* (спец.). Аранжава-жоўты пігмент, які спрыяе ўтварэнню ў арганізме вітаміну А. *У моркве многа караціну.*

**КАРАЦІ́ЦЬ**, -рачу́, -ро́ціш, -ро́ціць; *незак., што.* Рабіць карацейшым. *К. штаны.*

**КАРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што* і *без дап.* Падвяргаць пакаранню каго-н. *К. за злачынства.* ‖ *зак.* **пакара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны.

**КАРАЧА́ЕЎЦЫ**, -аў, *адз.* -ча́евец, -ча́еўца, *м.* Адзін з народаў, які насяляе Карачаева-Чаркескую Рэспубліку, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **карача́еўка**, -і, *ДМ* -ча́еўцы, *мн.* -і, -ча́евак. ‖ *прым.* **карача́еўскі**, -ая, -ае.

**КАРА́ЧКІ**. У выразах: **на карачкі**; **на карачках** (разм.) — поза, у якой чалавек стаіць, апіраючыся адначасова на абедзве рукі і нагі. *Станавіцца на карачкі. Паўзці на карачках.*

**КАРБАНА́Д**, -у, *М* -на́дзе, *м.* Свіное філе спецыяльнага прыгатавання. ‖ *прым.* **карбана́дны**, -ая, -ае.

**КАРБІ́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* (спец.). Злучэнне вугляроду з некаторымі металамі і металоідамі. *К. кальцыю.* ‖ *прым.* **карбі́давы**, -ая, -ае.

**КАРБО́ЛАВЫ**, -ая, -ае. Які змяшчае ў сабе карболавую кіслату. *К. раствор.* ○ **Карболавая кіслата** — ядавітая вадкасць з характэрным пахам, якая скарыстоўваецца як антысептычны і дэзынфекцыйны сродак; раствор фенолу.

**КАРБО́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* (разм.). Карболавая кіслата. ‖ *прым.* **карбо́лачны**, -ая, -ае,

**КАРБУ́НКУЛ**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Гнойнае запаленне скуры і падскурнай клятчаткі. **2.** -у. Каштоўны камень чырвонага колеру; чырвоны гранат (уст.). ‖ *прым.* **карбункулёзны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАРБЮРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыбор, у якім адбываецца карбюрацыя. ‖ *прым.* **карбюра́тарны**, -ая, -ае.

**КАРБЮРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Утварэнне гаручай сумесі з вадкага паліва і паветра ў рухавіках унутранага згарання. ‖ *прым.* **карбюрацы́йны**, -ая, -ае.

**КАРГА́**, -і́, *ДМ* карзе́, *мн.* -і, корг *і* ко́ргаў, *ж.* (разм., лаянк.). Пра злую, шкодную старую. *Старая к.*

**КАРДАМО́Н**, -у, *м.* **1.** Трапічная расліна сямейства імбірных. **2.** Насенне гэтай расліны, якое ўжыв. як вострая прыправа. ‖ *прым.* **кардамо́навы**, -ая, -ае.

**КАРДА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Механізм, што служыць для перадачы вярчэння паміж валамі, размешчанымі пад вуглом адзін да аднаго. **2.** Вал у такім механізме. ‖ *прым.* **карда́нны**, -ая, -ае. *К. механізм. К. вал.*

**КАРДАНА́Ж**, -у, *м., зб.* Вырабы з кардону (каробкі, футляры, дзіцячыя цацкі і пад.). ‖ *прым.* **кардана́жны**, -ая, -ае.

**КАРДО́Н**[1], -у, *м.* Тоўстая цвёрдая папера. *Ліст кардону.* ‖ *прым.* **кардо́нны**, -ая, -ае *і* **кардо́навы**, -ая, -ае.

**КАРДО́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пагранічны або загараджальны атрад; пост аховы. **2.** Месца, дзе знаходзіцца такі атрад ці пост, варта. **3.** Дзяржаўная мяжа, граніца (разм.). *Жыць за кардонам.* ‖ *прым.* **кардо́нны**, -ая, -ае.

**КАРДО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). **1.** Каробка з кардону. **2.** Невялікі кавалак кардону. *Выразаць самалёцік з кардонкі.*

**КАРДЫЁЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач — спецыяліст па кардыялогіі.

**КАРДЫНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вышэйшы пасля Папы Рымскага духоўны сан у каталіцкай царкве, а таксама асоба, якая мае гэты сан. **2.** Невялікая пеўчая птушка сямейства аўсянкавых з ярка-чырвоным (колеру кардынальскай мантыі) пер'ем, якая водзіцца ў Амерыцы. ‖ *прым.* **кардына́льскі**, -ая, -ае (да 1 знач.). *К. сан.*

**КАРДЫНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Галоўны, асноўны, самы істотны. *Кардынальныя перамены ў грамадстве.*

**КАРДЫЯ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да сэрца, напр.: *кардыяграфія, кардыясклероз, кардыяспазм, кардыястымулятар;* 2) які мае адносіны да кардыялогіі, напр.: *кардыянеўралагічны, кардыяцэнтр, кардыяхірургія.*

**КАРДЫЯГРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -гра́м, *ж.* Графічны паказ работы сэрца. *Зрабіць кардыяграму.* ‖ *прым.* **кардыягра́мны**, -ая, -ае.

**КАРДЫЯЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які займаецца хваробамі сардэчна-сасудзістай сістэмы і іх лячэннем. ‖ *прым.* **кардыялагі́чны**, -ая, -ае. *К. цэнтр.*

**КАРДЭБАЛЕ́Т**, -у, *М* -ле́це, *м., зб.* Артысты балета, якія выконваюць масавыя і групавыя танцы (у адрозненне ад салістаў балета). ‖ *прым.* **кардэбале́тны**, -ая, -ае.

**КАР'Е́Р**[1], -у, *м.* Самы хуткі бег каня. *Пусціць каня ў к.* (*кар'ерам*). ◊ **З месца ў кар'ер** — адразу, без падрыхтоўкі. ‖ *прым.* **кар'е́рны**, -ая, -ае.

**КАР'Е́Р**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Месца адкрытай здабычы карысных выкапняў, а таксама месца, дзе капаюць гліну, пясок і пад. ‖ *прым.* **кар'е́рны**, -ая, -ае.

**КАР'Е́РА**, -ы, *мн.* -ы, -е́р, *ж.* **1.** Высокі сацыяльны і службовы статус, дасягнуты дзейнасцю ў якой-н. галіне; вядомасць, слава. *Зрабіць кар'еру. К. не атрымалася.* **2.** Род дзейнасці; прафесія, занятак. *Артыстычная к.* ‖ *прым.* **кар'е́рны**, -ая, -ае.

**КАР'ЕРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Пагоня за кар'ерай (у 1 знач.), імкненне любымі спосабамі дасягнуць асабістага поспеху ў якой-н. сферы дзейнасці, не зважаючы на інтарэсы іншых. *Службовы к.* ‖ *прым.* **кар'еры́сцкі**, -ая, -ае.

**КАР'ЕРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які імкнецца зрабіць кар'еру (у 1 знач.) і клапоціцца толькі пра асабісты поспех, не зважаючы на інтарэсы іншых. ‖ *ж.* **кар'еры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **кар'еры́сцкі**, -ая, -ае. *Кар'ерысцкія планы.*

**КАРЖА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Сукаваты ствол дрэва; корч.

**КАРЖАКАВА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Пра дрэва: нізкі, з тоўстым сукаватым стваламі. *К. дуб.* **2.** Невысокі, шыракаплечы, моцнага целаскладу (пра чалавека, яго постаць). ‖ *наз.* **каржакава́тасць**, -і, *ж.*

**КАРЗІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -зі́н, *ж.* **1.** Тое, што і *кашолка.* **2.** Гандола аэрастата. **3.** У баскетболе: сетка на абручы, у якую закідваюць мяч. ‖ *прым.* **карзі́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАРКАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* Частка тушы, якая прылягае да карка. ‖ *прым.* **каркаві́нны**, -ая, -ае.

**КАРКА́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Унутраная апорная частка збудавання, канструкцыі, на якой трымаюцца астатнія часткі. *К. карабля.* ‖ *прым.* **карка́сны**, -ая, -ае.

**КА́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Пра варону: ствараць гукі, падобныя на «кар-кар». **2.** *перан.* Прадказваць няўдачу, няшчасце, бяду (разм.). *Хопіць табе к.* ‖ *зак.* **нака́ркаць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.). *Накаркаў бяду на сваю галаву.* ‖ *аднакр.* **ка́ркнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1 знач.). ‖ *наз.* **ка́рканне**, -я, *н.*

**КА́РЛІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек вельмі малога росту. **2.** Пра рэч, прадмет і інш. вельмі малога памеру. *Сасна-к. Дзяржава-к.* ‖ *прым.* **ка́рлікавы**, -ая, -ае. *Карлікавыя дрэвы. Карлікавае прадпрыемства.*

**КА́РЛІКАВАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* карлікавы. **2.** Хвароба, якая выклікаецца паражэннем залоз унутранай сакрэцыі і выражаецца ў ненармальна малым росце (спец.).

**КА́РЛІКАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* карлік. **2.** У назвах парод жывёл, відаў раслін, якія вызначаюцца малымі памерамі. *Карлікавая антылопа. Карлікавая бяроза.* ‖ *наз.* **ка́рлікавасць**, -і, *ж.*

**КАРМА́**, -ы́, *мн.* -ы́, -о́ў, *ж.* Задняя частка судна, процілеглая носу. *К. карабля.* ‖ *прым.* **кармавы́**, -а́я, -о́е. *Кармавое вясло.*

**КАРМА...** (*гл.* **корма...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «корма...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *кармакухня, кармарэзка, кармасклад, кармацэх.*

**КАРМАВЫ́**[1] *гл.* корм.

**КАРМАВЫ́**[2], -а́я, -о́е. **1.** *гл.* карма. **2.** *у знач. наз.* **кармавы́**, -о́га, *мн.* -ы́я, -ы́х. Матрос, які працуе на карме; рулявы.

**КАРМАКУ́ХНЯ**, -і, *мн.* -і, -хань, *ж.* Спецыяльнае памяшканне на ферме для прыгатавання корму жывёле і птушцы.

**КАРМАНЬЁЛА**, -ы, *ж.* Французская народная рэвалюцыйная песня-танец.

**КАРМІ́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* (разм.). Тое, што і *карміцель.*

**КАРМІ́ЛІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ліц, *ж.* (разм.). Тое, што і *карміцелька.*

**КАРМІ́Н**, -у, *м.* Ярка-чырвоная фарба, якая здабываецца з насякомага кашанілі. ‖ *прым.* **кармі́навы**, -ая, -ае *і* **кармі́нны**, -ая, -ае.

**КАРМІ́НАВЫ** *і* **КАРМІ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* кармін. **2.** Ярка-чырвоны, пунсовы, колеру карміну.

**КАРМІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Той, хто корміць, забяспечвае пражыткам. ‖ *ж.* **карміцелька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек.

**КАРМІ́ЦЕЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* **1.** *гл.* карміцель. **2.** Жанчына, якая корміць грудзьмі чужое дзіця.

**КАРМІ́ЦЦА**, кармлюся, ко́рмішся, ко́рміцца; *незак.* **1.** Есці, атрымліваць корм; насычацца. *Коні кормяцца на лугах.* **2.** *чым і без дап.* Мець за сродак для пражыцця; харчавацца. *Чапля корміцца рыбай. К. сваёй працай.* **3.** *чым, з чаго, на што.* Здабываць сродкі для існавання, пражыцця. *К. паляваннем.* ‖ *зак.* **пакармі́цца**, -кармлю́ся, -ко́рмішся, -ко́рміцца (да 1 знач.) *і* **пракармі́цца**, -кармлю́ся, -ко́рмішся, -ко́рміцца (да 3 знач.); *наз.* **пракóрм**, -у, *м.* (да 3 знач.) *і* **пракармле́нне**, -я, *н.* (да 3 знач.).

**КАРМІ́ЦЬ**, кармлю́, ко́рміш, ко́рміць; ко́рмлены; *незак., каго (што).* **1.** *чым* і *без дап.* Даваць ежу, корм. *К. дзіця. Пара к. карову.* **2.** Выкормліваць дзіця сваім малаком. *К. немаўля.* **3.** *перан.* Забяспечваць неабходным для пражыцця, утрымліваць. *К. сірот.* ◊ **Карміць абяцанкамі** — абяцаць зрабіць што-н., але не выканаць. ‖ *зак.* **накармі́ць**, -кармлю́, -ко́рміш, -ко́рміць; -ко́рмлены (да 1 і 2 знач.), **пакармі́ць**, -кармлю́, -ко́рміш, -ко́рміць; -ко́рмлены (да 1 і 2 знач.), **пракармі́ць**, -кармлю́, -ко́рміш, -ко́рміць; -ко́рмлены (да 3 знач.); *наз.* **пракóрм**, -у, *м.* (да 3 знач.) *і* **пракармле́нне**, -я, *н.* (да 3 знач.). ‖ *наз.* **кармле́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**КАРМУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Карыта, скрынка і пад., у якія кладуць корм для жывёлы, птушак. **2.** *перан.* Пра месца, дзе можна пажывіцца, набыць што-н. для сябе незаконным спосабам (разм., неадабр.). ‖ *прым.* **карму́шачны**, -ая, -ае.

**КАРНАВА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гулянне-маскарад з песнямі, танцамі [першапачаткова вясенняе — у Італіі]. *Навагодні к.* ‖ *прым.* **карнава́льны**, -ая, -ае. *Карнавальнае шэсце.*

**КАРНАВУ́ХІ**, -ая, -ае. З абрэзаным або пакалечаным вухам. *К. кот.* ‖ *наз.* **карнаву́хасць**, -і, *ж.*

**КАРНЕ́Т**[1], -а, *М* -не́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). У царскай арміі: афіцэрскі чын у кавалерыі, роўны падпаручніку пяхоты, а таксама афіцэр, які меў гэты чын.

**КАРНЕ́Т**[2], -а, *М* -не́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Духавы медны музычны інструмент у выглядзе ражка.

**КАРНІ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Гарызантальны выступ у верхняй частцы будынка, над вокнамі, дзвярамі. **2.** Прыстасаванне над акном звычайна ў выглядзе папярочнага бруса, на якое вешаюць шторы, парцьеры. ‖ *прым.* **карні́зны**, -ая, -ае.

**КА́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто карае; удзельнік карнага атрада. ‖ *прым.* **ка́рніцкі**, -ая, -ае.

**КАРНІШО́Н**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Маленькі, зняты хутка пасля цвіцення агурок, прызначаны для марынавання. **2.** -у. Гатунак такіх агуркоў. ‖ *прым.* **карнішо́нны**, -ая, -ае.

**КА́РНЫ**, -ая, -ае. Які мае сваёй мэтай караць каго-н. *Карныя меры. К. атрад.*

**КАРО́БКА**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* **1.** Невялікая скрынка (з кардону, дрэва, пластмасы і пад.), а таксама такая ж скрынка з якім-н. таварам, наборам якіх-н. прадметаў. *К. пячэння.* **2.** Каркас будынка. *К. дзевяціпавярховага дома.* ○ **Каробка хуткасцей** — у розных машын: механізм для змены хуткасці і напрамку руху. **Чарапная каробка** — тое, што і *чэрап* (у 1 знач.). ‖ *памянш.* **каро́бачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **каро́бачны**, -ая, -ае.

**КАРО́БЧАТЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае выгляд каробкі, карабка. *Каробчатае скляпенне.*

**КАРО́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -ро́ў, *ж.* Буйная свойская жывёліна, якая дае малако; самка быка, а таксама некаторых парод буйной рагатай жывёліны (лася, аленя, зубра). ○ **Марская карова** — вымерлае воднае млекакормячае атрада сірэн. ◊ **Дойная карова** — пра крыніцу матэрыяльных даброт, якой звычайна карыстаюцца несумленныя людзі ў асабістых мэтах. **Як карова языком злізала** *каго-што* (разм., жарт.) — хутка і бясследна знік, як і не было. ‖ *памянш.* **каро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* ‖ *прым.* **каро́він**, -а. *К. рык.*

**КАРО́ЗІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Разбурэнне металаў пад уздзеяннем асяроддзя — вільгаці, хімічных рэчываў і пад. *К. жалеза.* ‖ *прым.* **каразі́йны**, -ая, -ае.

**КАРО́ЛЬ**, каралÿ, *мн.* каралі́, каралёў, *м.* **1.** Адзін з тытулаў манарха, а таксама асоба, якая носіць гэты тытул. *Іспанскі к.* **2.** *перан., чаго* або *які.* Манапаліст у якой-н. галіне прамысловасці і гандлю. **3.** *перан., чаго* або *які.* Пра таго, хто вылучаецца сярод іншых у якой-н. галіне дзейнасці, хто дасягнуў дасканаласці. *К. пейзажу.* **4.** Галоўная фігура ў шахматнай гульні. **5.** Ігральная карта, на якой намалявана мужчынская фігура ў кароне. ‖ *ж.* **каралéва**, -ы, *мн.* -ы, -лéў (да 1 знач.). ‖ *прым.* **каралéўскі**, -ая, -ае.

**КАРО́МЫСЕЛ**, -сла, *мн.* -слы, -слаў, *м.* **1.** Драўляная дуга з выемкамі або кручкамі на канцах для пераносу на плячах вёдзер з вадой і іншых грузаў. **2.** Рычаг у некаторых механізмах, напр., у вагах. ◊ **Дым кароміслам** (разм.) — вялікае ажыўленне; шум, беспарадак.

**КАРО́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ро́н, *ж.* **1.** Галаўны ўбор манарха з каштоўнымі ўпрыгожаннямі, які з'яўляецца сімвалам улады манарха. *Царская к.* **2.** *перан.* Улада, першынство ў чым-н. *Барацьба за карону. Барацьба за шахматную карону.* **3.** Тое, што і *крона*[1]. **4.** Светлы арэол вакол Сонца, бачны ў час сонечнага зацьмення (спец.). *Сонечная к.* **5.** *у знач. прысл.* **каро́най.** Вакол галавы (пра жаночую прычоску). *Улажыць касу каронай.* ◊ **Карона з галавы не зваліцца (не спадзе)** (разм.) — гонар не будзе закрануты, аўтарытэт не пацерпіць. ‖ *прым.* **каро́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАРО́НІСТЫ**, -ая, -ае. Які мае вялікую карону (у 3 знач.), галінасты. *Кароністае дрэва.* ‖ *наз.* **каро́ністасць**, -і, *ж.*

**КАРО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Знешняя частка зуба. **2.** Артапедычная канструкцыя, мікрапратэз, які пакрывае частку сапсаванага зуба з мэтай яго захавання. *Паставіць каронку.* ‖ *прым.* **каро́нкавы**, -ая, -ае.

**КАРО́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** У манархічных краінах: дзяржаўны, урадавы (уст.). *К. суд. Каронныя землі.* **2.** Найбольш удалы, лепшы. *К. нумар канцэрта.*

**КАРО́СЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выклікаецца каростай. *К. сверб.* **2.** *у знач. наз.* **каро́слівы**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Хворы на каросту.

**КАРО́СТА**, -ы, *ДМ* -сце, *ж.* Заразная хвароба скуры ў чалавека і жывёл, якая суправаджаецца моцным свербам. ‖ *прым.* **каро́ставы**, -ая, -ае. ○ **Кароставы клешч** — паразіт жывёльнага паходжання, які з'яўляецца ўзбуджальнікам каросты.

**КАРОТКА...** (а таксама **каратка...**) Першая састаўная частка складаных слоў са знач. кароткі, напр.: *кароткаметражны, кароткачасовы.*

**КАРОТКАМЕТРА́ЖНЫ**, -ая, -ае. З невялікай колькасцю метраў плёнкі ў адрозненне ад поўнаметражнага. *Хранікальны к. фільм.*

**КАРОТКАТЭРМІНО́ВЫ**, -ая, -ае. Які працягваецца кароткі тэрмін, дазваляецца на кароткі час. *К. водпуск. Кароткатэрміновая пазыка.* ‖ *наз.* **кароткатэрміно́васць**, -і, *ж.*

**КАРОТКАХВАЛЯВІ́К**, -левіка́, *мн.* -левікі́, -левіко́ў, *м.* Радыёаматар, які працуе на кароткіх хвалях (радыёхвалі ад 10 да 200 метраў).

**КАРОТКАЧАСО́ВЫ**, -ая, -ае. Які працягваецца нядоўгі час. *К. дождж. К. перапынак.* ‖ *наз.* **кароткачасо́васць**, -і, *ж.*

**КАРО́ТКІ**, -ая, -ае; -так, -тка. **1.** Невялікі па даўжыні; *проціл.* доўгі. *Кароткая сукенка. Падстрыгчыся коратка* (прысл.). **2.** Непрацяглы ў часе; *проціл.* доўгі. *Кароткая нарада. К. дзень. Выступіць коратка* (прысл.). **3.** Сціслы, нешматслоўны. *Кароткае пісьмо. Адказаць коратка* (прысл.). **4.** Рашучы, хуткі, суровы. *К. ўдар. Прысуд ворагам к.* **5.** Які вымаўляецца хутка, адрывіста (пра гукі, склады). **6.** Які характарызуецца няпоўнай формай. *Якасныя прыметнікі ў кароткай форме.* ◊ **Кароткая памяць** *у каго* (неадабр.) — дрэнная, слабая памяць (звычайна ў таго, хто не хоча помніць, прыпомніць што-н.). **Кароткі завароткі** *у каго* (разм.) — пра таго, хто дзейнічае рашуча, не задумваючыся. **Кароткі розум** — пра слабы, невялікі розум. **На кароткай назе** *хто з кім* — у добрых, сяброўскіх адносінах з кім-н. **Рукі кароткія** *у каго* (разм.) — няма магчымасці, сілы зрабіць што-н. ‖ *памянш.* **каро́ценькі**, -ая, -ае (да 1—3 знач.; разм.). ‖ *наз.* **каро́ткасць**, -і, *ж.*

**КАРО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Памяшканне, хлеў для кароў і быкоў.

**КАРП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прэснаводная рыба сямейства карпавых, якая разводзіцца ў штучных вадаёмах; культурная разнавіднасць сазана. *Люстраны к.* ‖ *прым.* **ка́рпавы**, -ая, -ае.

**КАРПАНІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Марудлівая, малапрадукцыйная работа. *Не работа, а толькі к.*

**КАРПА́ННЕ** *гл.* корпацца, корпаць.

**КАРПАРАТЫ́Ў**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Від адпачынку, мерапрыемства забаўляльнага характару, у якім прыма-

юць удзел члены ці супрацоўнікі аднаго прадпрыемства, арганізацыі, фірмы і пад.; вечарынка. *Навагодні к.* ‖ *прым.* **карпаратыўны**, -ая, -ае. *Карпаратыўная вечарынка.*

**КАРПАРАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* карпаратыў. **2.** Вузкагрупавы, замкнуты ў межах карпарацыі. *Карпаратыўныя інтарэсы.* ‖ *наз.* **карпараты́ўнасць**, -і, *ж.*

**КАРПАРА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Група асоб, аб'яднаных прафесійнымі або саслоўнымі інтарэсамі. *Радыёвяшчальная к.* **2.** Адна з форм манапалістычнага аб'яднання. ‖ *прым.* **карпараці́йны**, -ая, -ае. *Карпарацыйныя інтарэсы.*

**КАРПАТЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Старанны, руплівы, дбайны. *К. супрацоўнік.* **2.** Які патрабуе шмат увагі, стараннасці, цярплівасці. *Карпатлівая праца.* ‖ *наз.* **карпатлі́васць**, -і, *ж.*

**КАРПА́ЦЦА** *гл.* корпацца.

**КАРПА́ЦЬ** *гл.* корпаць.

**КАРПА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм., зневаж.) Той, хто марудна робіць якую-н. работу.

**КАРПЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* (разм.). **1.** *над чым* і *без дап.* Старанна, цярпліва і доўга займацца чым-н. *К. над рукапісам.* **2.** *перан.* Жыць у пакутах, цяжкіх умовах. *Вось так карпею ўсё жыццё.*

**КАРПУСНЫ́** *гл.* корпус.

**КАРСА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Марскі разбойнік, пірат. ‖ *прым.* **карса́рскі**, -ая, -ае.

**КАРСТ**, -у, *М* -сце, *м.* (спец.). Сукупнасць з'яў, звязаных з растварэннем прыроднымі водамі горных парод і ўтварэннем у іх пячор, правалаў, паглыбленняў і інш. ‖ *прым.* **ка́рставы**, -ая, -ае. *Карставыя ўтварэнні. Карставыя пячоры.*

**КАРТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гоначны мікралітражны аўтамабіль з матацыклетным рухавіком і без кузава.

**КА́РТА**, -ы, *ДМ* ка́рце, *мн.* -ы, карт, *ж.* **1.** Зменшаны чарцёж зямной паверхні, зорнага неба або паверхні якой-н. планеты. *Геаграфічная к. К. Месяца. Астранамічная к.* **2.** Адзін з цвёрдых папяровых лісткоў, якія складаюць калоду для гульні і адрозніваюцца паміж сабой па намаляваных на іх умоўных фігурах або ачках чатырох масцей. *Калода карт.* **3.** *мн.* Гульня пры дапамозе калоды такіх лісткоў. *Гульня ў карты.* **4.** Бланк для запаўнення якімі-н. звесткамі. *Санаторная к.* ◊ **Зблытаць карты** — разладзіць, парушыць чые-н. планы, намеры. **І карты ў рукі** — пра таго, хто мае ўсе магчымасці, умовы для чаго-н. **Карта біта** — пра чый-н. правал, пройгрыш. **Раскрыць карты** — перастаць трымаць у тайне свае планы і намеры. **Ставіць на карту** *што* — рызыкаваць чым-н., спадзеючыся на выгаду, выйгрыш. ‖ *прым.* **карцёжны**, -ая, -ае (да 3 знач.) *і* **ка́ртачны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**КАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што* (разм.). Перамешваць карты ў калодзе. ‖ *наз.* **картава́нне**, -я, *н.*

**КАРТА́ВІНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Злёгку картавае вымаўленне. *Гаварыць з картавінкай.*

**КАРТА́ВІЦЬ**, -та́ўлю, -та́віш, -та́віць; *незак.* Вымаўляць нячыста, няправільна гукі «р» або «л».

**КАРТА́ВЫ**, -ая, -ае. З нячыстым, няправільным вымаўленнем гукаў («р» або «л»). *Картавае дзіця. Картавае вымаўленне.* ‖ *наз.* **карта́васць**, -і, *ж.*

**КАРТАГРАФАВА́ЦЬ**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны; *незак., што.* Наносіць на геаграфічную карту. ‖ *наз.* **картаграфава́нне**, -я, *н.*

**КАРТАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Навука аб складанні геаграфічных карт, а таксама само складанне іх. ‖ *прым.* **картаграфі́чны**, -ая, -ае.

**КАРТАТЭ́КА**, -і, *ДМ* -тэ́цы, *мн.* -і, -тэ́к, *ж.* Сістэматызаваны збор картак з якой-н. даведачнай ці ўліковай інфармацыяй. *К. замежнай літаратуры.* ‖ *прым.* **картатэ́чны**, -ая, -ае.

**КАРТ-БЛА́НШ**, *нескл., м.* (кніжн.). Неабмежаваныя паўнамоцтвы, дадзеныя якой-н. асобе, поўная свабода ў дзеяннях.

**КА́РТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Прамавугольны лісток паперы або кардону для запісу якіх-н. звестак. *Каталожная к. Лічбы на картках.* **2.** Фатаграфічны здымак (разм.). *К. для пасведчання.* **3.** Пасведчанне, уліковы дакумент і пад. ў выглядзе невялікага ліста цвёрдай паперы. *Уліковая к. Візітная к.* ○ **Банкаўская плацежная картка** — плацежны інструмент, які забяспечвае доступ да банкаўскага рахунку і правядзенне безнаяўных плацяжоў за тавары і паслугі, атрыманне наяўных грашовых сродкаў і ажыццяўленне іншых аперацый. ‖ *памянш.* **ка́ртачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **ка́ртачны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.). *Картачная сістэма.*

**КАРТО́ВЫ** *гл.* корт[1].

**КАРТО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па картаграфіі.

**КАРТУ́З**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Мужчынскі галаўны ўбор з аколышкам і цвёрдым казырком. ‖ *прым.* **карту́зны**, -ая, -ае.

**КА́РТЫНГ**, -а, *м.* Гонкі на аўтамабілях тыпу карт як від спорту.

**КАРТЫНГІ́СТ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца картынгам.

**КАРТЭ́Ж**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урачыстае шэсце, працэсія. *Вясельны к.* ‖ *прым.* **картэ́жны**, -ая, -ае.

**КАРТЭ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Аб'яднанне буйных прадпрыемстваў якой-н. галіны прамысловасці, якія захоўваюць камерцыйную і вытворчую самастойнасць, арганізаванае з мэтай рэгулявання вытворчасці, забеспячэння панавання на рынку, кантролю над цэнамі і атрымання манапольных прыбыткаў. *Нафтавы к.* **2.** Пісьмовы выклік на дуэль (уст.). ‖ *прым.* **картэ́льны** (да 1 знач.), -ая, -ае. *Картэльнае аб'яднанне.*

**КАРУМПАВА́НЫ**, -ая, -ае. Прасякнуты карупцыяй. *Карумпаваныя элементы.* ‖ *наз.* **карумпава́насць**, -і, *ж.*

**КАРУ́НАЧНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Жанчына, якая вырабляе карункі.

**КАРУ́НД**, -а, *М* -дзе, *м.* Вельмі цвёрды мінерал, разнавіднасцямі якога з'яўляюцца рубін, тапаз, сапфір. ‖ *прым.* **кару́ндавы**, -ая, -ае.

**КАРУ́НКІ**, -аў. Ажурныя вырабы з ільняных, шаўковых і іншых нітак для аздобы бялізны, адзення і пад. ‖ *прым.* **кару́нкавы**, -ая, -ае.

**КАРУ́ПЦЫЯ**, -і, *ж.* Подкуп хабарам, прадажнасць службовых асоб, дзяржаўных чыноўнікаў і палітычных дзеячаў. *Барацьба з карупцыяй.* ‖ *прым.* **карупцы́йны**, -ая, -ае.

**КАРУПЦЫЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дзяржаўны чыноўнік, палітычны або грамадскі дзеяч, замешаны ў карупцыі.

**КАРУСЕ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Спецыяльная пляцоўка з сядзеннямі ў форме конікаў, экіпажаў, лодак і інш., якая круціцца вакол сваёй восі і служыць для катання. ‖ *прым.* **карусе́льны**, -ая, -ае.

**КА́РЦАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Памяшканне для часовага адзіночнага зняволення (у турмах, канцлагерах і інш.). ‖ *прым.* **ка́рцарны**, -ая, -ае. *К. рэжым.*

**КАРЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ціць; *незак.* (разм.). **1.** *безас., з інф., са злуч.* «каб» *і без дап.* Пра неадольнае жаданне зрабіць што-н.; хацецца; не цярпецца. *Мне карціць сказаць. Сыну карцела, каб хто быў побач.* **2.** Не даваць спакою, непакоіць, хваляваць. *Не вучоба карціць, а паездка ў горад.*

**КАРЦЕ́Ч**, -ы, *ж.* **1.** Артылерыйскі снарад, начынены круглымі кулямі для масавага паражэння жывой сілы праціўніка на блізкай адлегласці (уст.). **2.** Буйны шрот для паляўнічага ружжа. ‖ *прым.* **карце́чны**, -ая, -ае.

**КАРЦЁЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Заўзяты гулец у карты. ‖ *ж.* **карцёжніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **карцёжніцкі**, -ая, -ае.

**КАРЦІ́НА**, -а, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* **1.** Твор жывапісу, выкананы фарбамі. *Карціны мастака М. Савіцкага.* **2.** Тое, што можна бачыць, уяўляць у канкрэтных вобразах. *Карціны прыроды.* **3.** Адлюстраванне чаго-н. у літаратурным творы. *К. бітвы. К. жыцця сялян.* **4.** Агульны стан, выгляд чаго-н. *Клінічная к. захворвання.* **5.** Частка акта ў драматычным творы, якая патрабуе самастойнай дэкарацыі. *Другая к. першага акта.* **6.** Кінакарціна, кінафільм (разм.). *У кінатэатры ідзе новая к.* ‖ *памянш.* **карці́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (да 1—3 знач.). ‖ *прым.* **карці́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Карцінная галерэя.*

**КАРЦІ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* карціна. **2.** *перан.* Вобразны, выразны, які стварае

ўражанне сваёй знешняй прыгажосцю. *Карцінная поза.* || *наз.* **карцíннасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**КАРЧАВÁЦЬ**, -чýю, -чýеш, -чýе; -чýй; -чавáны; *незак., што.* Выкопваць з карэннем. *К. пні.* || *наз.* **карчавáнне**, -я, *н.* || *прым.* **карчавáльны**, -ая, -ае (спец.). *Карчавальная машына.*

**КАРЧÁГА**[1], -і, *ДМ* -чáзе, *мн.* -і, -чáг, *ж.* (разм.). Пень, вывернуты з карэннем; корч. || *памянш.* **карчáжка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.*

**КАРЧÁГА**[2], -і, *ДМ* -чáзе, *мн.* -і, -чáг, *ж.* **1.** Тое, што і *амфара* (уст.). **2.** Гляк для мазі (разм.). || *прым.* **карчáжны**, -ая, -ае.

**КАРЧÁЖЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -жын, *ж.* (разм.). Тое, што і *карчага*[1].

**КАРЧÁК**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* (разм.). Вывернуты з зямлі корч. *Выцяў нагу аб к.*

**КАРЧАКАВÁТЫ**, -ая, -ае. **1.** З вялікай колькасцю карчоў; карчысты (разм.). *Карчакаватая дарога.* **2.** Пра чалавека, яго постаць: каржакаваты (разм.). *Тоўсты, к. дзядзька сядзеў на ганку.* || *наз.* **карчакавáтасць**, -і, *ж.*

**КАРЧАНÉЦЬ**, -éю, -éеш, -éе; *незак.* (разм.). Моцна азябшы, траціць адчувальнасць. *Ногі карчанеюць на холадзе.* || *зак.* **закарчанéць**, -éю, -éеш, -éе *і* **скарчанéць**, -éю, -éеш, -éе.

**КАРЧМÁ**, -ы́, *мн.* кóрчмы *і (з ліч. 2, 3, 4)* карчмы́, кóрчмаў, *ж.* (уст.). Заезны дом з начлегам у дарэвалюцыйнай Беларусі, ва Украіне і ў Польшчы. || *прым.* **карчóмны**, -ая, -ае.

**КАРЧМÁР**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* (уст.). Гаспадар карчмы. || *ж.* **карчмáрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. || *прым.* **карчмáрскі**, -ая, -ае.

**КАРЧЫ́СТЫ**, -ая, -ае. З вялікай колькасцю карчоў, пнёў. || *наз.* **карчы́стасць**, -і, *ж.*

**КАРЧЭ́ЎЕ**, -я, *н., зб.* Карчы, пні.

**КАРШÁК** *гл.* коршак.

**КАРШАКÓВЫ** *гл.* коршак.

**КАРШÝН**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Вялікая драпежная птушка сямейства ястрабіных з доўгімі крыламі і загнутай дзюбай. ◊ **Каршуном наляцець** — злосна і хутка накінуцца, напасці на каго-н. || *прым.* **каршунóвы**, -ая, -ае. *Каршуновая дзюба.*

**КÁРЫ**[1], -ая, -ае. Карычневы (пра колер вачэй). *Карыя вочы.*

**КÁРЫ**[2], -аў. **1.** Сані для перавозкі бярвення. **2.** Вялікія калёсы для перавозкі грузаў.

**КАРЫ́ДА**, -ы, *М* -дзе, *ж.* Масавае відовішча ў Іспаніі і ў некаторых іншых краінах: бой тарэадора з быком.

**КÁРЫЕС** *і* **КАРЫЁЗ** -у, *м.* Паступовае разбурэнне цвёрдай тканкі косці зуба. || *прым.* **кáрыесны**, -ая, -ае *і* **карыёзны**, -ая, -ае.

**КАРЫКАТÝРА**, -ы, *мн.* -ы, -тýр, *ж.* **1.** Малюнак, на якім намаляваны хто-н. або што-н. у скажоным, падкрэслена смешным выглядзе. *К. на гультаёў.* **2.** *перан.* Смешнае, недасканалае падабенства да каго-, чаго-н. *Гэты касцюм — к. на ўменне шыць.* || *прым.* **карыкатýрны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАРЫКАТÝРНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* карыкатура. **2.** *перан.* Смешны, недарэчны, прыдатны для карыкатуры. *К. выгляд.* || *наз.* **карыкатýрнасць**, -і, *ж.*

**КАРЫКАТУРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак, які малюе карыкатуры. || *ж.* **карыкатуры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **карыкатуры́сцкі**, -ая, -ае.

**КАРЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Чорны дробны сушаны вінаград без костачак. || *прым.* **карынкавы**, -ая, -ае.

**КАРЫ́СЛІВЕЦ**, -ліўца, *мн.* -ліўцы, -ліўцаў, *м.* (разм.). Тое, што і *карысталюбец.*

**КАРЫ́СЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Заснаваны на карысці, які мае на ўвазе выгаду, карысць. *Карыслівыя намеры. Карыслівая разважлівасць.* **2.** Які імкнецца да асабістай выгады, нажывы. *К. чалавек.* || *наз.* **карыслівасць**, -і, *ж.*

**КАРЫ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прыносіць карысць. *Карысная кніга. Карысная заўвага.* **2.** Які складае частку цэлага, выкарыстоўваецца непасрэдна па прызначэнні (спец.). *Карысная плошча.* || *наз.* **карыснасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**КАРЫСТÁЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба або ўстанова, якая карыстаецца чым-н. *К. персанальнага камп'ютара. К. паслуг.*

**КАРЫСТАЛЮ́БЕЦ**, -бца, *мн.* -бцы, -бцаў, *м.* Карыслівы чалавек.

**КАРЫСТАЛЮБÍВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *карыслівы.*

**КАРЫСТАЛЮ́БНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *карысталюбівы.*

**КАРЫСТАЛЮ́БСТВА**, -а, *н.* Імкненне да асабістай выгады, прага да нажывы.

**КАРЫСТÁЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак., чым.* **1.** Выкарыстоўваць для сваёй патрэбы. *К. газам. К. гарадской бібліятэкай.* **2.** Выкарыстоўваць што-н. у сваіх інтарэсах, атрымліваць выгаду, карысць з чаго-н. *К. выпадкам. К. чужой дабратой.* **3.** Мець што-н. (аўтарытэт, павагу, правы і інш.). *К. поспехам. К. усімі правамі.* || *зак.* **пакарыстáцца**, -áюся, -áешся, -áецца (да 1 і 2 знач.). || *наз.* **карыстáнне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**КАРЫ́СЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Добрыя, спрыяльныя вынікі для каго-, чаго-н. *Прынесці к. радзіме.* **2.** Матэрыяльная выгада для каго-, чаго-н.; прыбытак. *Мець к. са сваёй працы.* ◊ **Гаварыць на карысць** *каго-чаго* — служыць доказам, пацвярджэннем дадатных якасцей каго-, чаго-н. **На карысць** *каго-чаго* — 1) са станоўчымі вынікамі для каго-, чаго-н. *Справа вырашылася на карысць работніка;* 2) дзеля чыёй-н. выгады, карысці. *Змена месца службы пайшла яму на карысць.*

**КАРЫ́ТА**, -а, *М* -ры́це, *мн.* -ы, -ры́т *і* -аў, *н.* Прадаўгаватая пасудзіна, збітая з дошак або выдзеўбаная з дрэва, якая звычайна выкарыстоўваецца для кармлення жывёлы. *Збіць к.* ◊ **Застацца ля разбітага карыта** — ні з чым, страціўшы ўсё набытае. || *памянш.* **кары́тца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* || *прым.* **кары́тны**, -ая, -ае.

**КАРЫФÉЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (высок.). Выдатны дзеяч у якой-н. галіне. *К. сусветнай літаратуры.*

**КАРЫ́ЦА**, -ы, *ж.* Высушаная пахучая кара з галінак карычных дрэў, ужыв. як прыправа. || *прым.* **кары́чны**, -ая, -ае.

**КАРЫ́ЦЦА**, карýся, кóрышся, кóрыцца; *незак.* (разм.). Падпарадкоўвацца чыёй-н. волі, уладзе; пакарацца.

**КАРЫ́ЦЬ**[1], карý, кóрыш, кóрыць; кóраны; *незак., што.* Абчышчаць дрэва ад кары; акорваць. *К. жэрдкі.*

**КАРЫ́ЦЬ**[2], карý, кóрыш, кóрыць; кóраны; *незак., каго (што)* (разм.). Папракаць, дакараць. *Хопіць яго к.*

**КАРЫЧНЕВА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: карычневы, з карычневым адценнем; карычневы ў спалучэнні з іншым, асобным колерам, напр.: *карычнева-залацісты, карычнева-чырвоны, карычнева-шэры* і інш.

**КАРЫ́ЧНЕВЫ**, -ая, -ае. **1.** Цёмны, буравата-жоўты (колеру жолуда або карыцы). *Карычневае паліто.* **2.** *у знач. наз.* **кары́чневыя**, -ых. Аб людзях, групах людзей, арганізацыях, блізкіх да фашызму, фашысцкай ідэалогіі.

**КАРЫЯТЫ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ты́д *і* -аў, *ж.* Калона, апора ў будынку ў выглядзе жаночай фігуры.

**КАРЭ́**, *нескл., н.* **1.** Баявое пастраенне пяхоты ў форме чатырохвугольніка, якое прымянялася ў еўрапейскіх арміях да канца 19 ст. галоўным чынам для адбіцця атак кавалерыі. **2.** *нязм.* У форме чатырохвугольніка. *Каўнер к.*

**КАРЭ́ЙКА**, -і, *ДМ* -рэ́йцы, *ж.* Свіная або цялячая грудзінка спецыяльнага прыгатавання.

**КАРЭ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -рэ́ец, -рэ́йца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Карэйскага паўвострава. || *ж.* **карэя́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **карэ́йскі**, -ая, -ае.

**КАРЭ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік выдавецтва, газеты або друкарні, які чытае і правіць карэктуру. || *прым.* **карэ́ктарскі**, -ая, -ае. *Нарада ў карэктарскай* (наз.).

**КАРЭ́КТНЫ**, -ая, -ае. Ветлівы, тактычны, далікатны. *Карэктная заўвага. Карэктна* (прысл.) *паводзіць сябе.* || *наз.* **карэ́ктнасць**, -і, *ж.*

**КАРЭКТÝРА**, -ы, *ж.* Выпраўленне памылак на адбітку друкарскага набору, а таксама сам гэты адбітак. *Чытаць карэктуру.* || *прым.* **карэктýрны**, -ая, -ае.

**КАРЭКТЫ́Ў**, -тыву, *мн.* -тывы, -ты́ваў, *м.* (кніжн.). Частковая папраўка, змяненне чаго-н. *Унесці карэктывы ў рукапіс.*

**КАРЭКЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., што.* **1.** Уносіць карэктывы, папраўкі ў што-н. *К. праект пастановы. К. агонь артылерыі.* **2.** Выпраўляць памылкі ў карэктуры. *К. артыкул.* ||

**скарэкціраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны (да 1 знач.) *і* **адкарэкціраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **карэкціраванне**, -я, *н.* *і* **карэкціро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* (да 1 знач.); *прым.* **карэкціро́вачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАРЭКЦІРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто ажыццяўляе карэкціроўку. *Лётчык-к.* **2.** Лятальны апарат або іншае спецыяльнае прыстасаванне, з якіх вядзецца карэкціроўка артылерыйскага агню.

**КАРЭ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Выпраўленне, частковае змяненне чаго-н. *К. зроку.* **2.** Унясенне паправак у дзеянне вымяральных прыбораў, рэгулятараў у залежнасці ад змен умоў іх эксплуатацыі. *К. траекторыі палёту самалёта.*

**КАРЭ́ЛЫ**[1], -аў, *адз.* -рэ́л, -а, *м.* Народ, які складае карэннае насельніцтва Рэспублікі Карэлія, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **карэ́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **карэ́льскі**, -ая, -ае. *К. народ.* ○ **Карэльская бяроза** — від бярозы з прыгожай узорыстай драўнінай на зрэзе.

**КАРЭ́ЛЫ**[2], -ая, -ае. Пакрыты слоем засохлай гразі; брудны. *Карэлая сукенка. Карэлыя рукі.* ‖ *наз.* **карэ́ласць**, -і, *ж.*

**КАРЭЛЯТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які знаходзіцца ў карэляцыі з чым-н.; суадносны. *Карэлятыўныя паняцці.*

**КАРЭЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (кніжн.). Узаемная сувязь, суадноснасць прадметаў, паняццяў або з'яў. ‖ *прым.* **карэляцы́йны**, -ая, -ае.

**КАРЭ́НІШЧА**, -а, *н.* **1.** Падземнае сцябло шматгадовых травяністых раслін, якое адрозніваецца ад кораня наяўнасцю недаразвітага лісця. **2.** Асноўны, галоўны корань дрэва, які з'яўляецца працягам ствала. ‖ *прым.* **карэ́нішчавы**, -ая, -ае.

**КАРЭ́ННЕ**, -я, *н.*, *зб.* **1.** Карані (*гл.* корань у 1—3 знач.). **2.** Падземныя часткі некаторых раслін (пятрушкі, сельдэрэю і інш.), якія ўжыв. як прыправа.

**КАРЭ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Спрадвечны, пастаянны (пра жыхароў пэўнай мясцовасці). *К. мінчанін.* **2.** Рашаючы, самы істотны, які датычыцца асноў чаго-н. *К. пералом у грамадскім жыцці. Карэнныя змены.* **3.** Які мае адносіны да кораня слова; каранёвы. *Карэнная частка слова.* ○ **Карэнныя зубы** — пяць задніх зубоў з кожнага боку верхняй і ніжняй сківіц. ◊ **Карэнным чынам** — поўнасцю, зусім.

**КАРЭ́НЬЧЫК** *гл.* корань.

**КАРЭСПАНДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *незак.* (кніжн.). **1.** Накіроўваць куды-н. карэспандэнцыю (у 3 знач.; уст.). **2.** *з чым.* Адпавядаць чаму-н., суадносіцца з чым-н.

**КАРЭСПАНДЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, хто знаходзіцца ў перапісцы з кім-н. **2.** Аўтар карэспандэнцый у газеце, часопісе, на радыё, тэлебачанні. *Уласны к. Спецыяльны к. Пазаштатны к. Ваенны к.* ‖ *ж.* **карэспандэ́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **карэспандэ́нцкі**, -ая, -ае.

**КАРЭСПАНДЭ́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Паштовая перапіска паміж асобамі або ўстановамі. *Весці карэспандэнцыю.* **2.** *зб.* Пісьмы, паштова-тэлеграфныя адпраўленні. *Дастаўка карэспандэнцыі. Заказная к.* **3.** Паведамленне пра падзеі, дасланае адкуль-н. у газету, часопіс. *Паслаць карэспандэнцыю ў «Вячэрні Мінск».*

**КАРЭ́ТА**, -ы, *ДМ* -рэ́це, *мн.* -ы, -рэ́т, *ж.* Закрыты з усіх бакоў чатырохколы конны экіпаж на рысорах. ○ **Карэта хуткай дапамогі** — спецыяльная аўтамашына, якая высылаецца для неадкладнай медыцынскай дапамогі. ◊ **(Прыйшоўся) як вол да карэты** (разм.) — пра таго, хто аказаўся ў недарэчных абставінах. ‖ *памянш.* **карэ́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* ‖ *прым.* **карэ́тны**, -ая, -ае.

**КАРЭ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** *гл.* карэта. **2.** Рухомая частка некаторых машын, механізмаў, апаратаў (спец.). *К. вязальнай машыны.* ‖ *прым.* **карэ́тачны**, -ая, -ае.

**КАРЭ́Ц**, -рца́, *мн.* -рцы́, -рцо́ў, *м.* Драўляны або металічны коўш (у 1 знач.) з ручкай для зачэрпвання вады, квасу і пад.; конаўка. ‖ *прым.* **карцо́вы**, -ая, -ае.

**КАРЭ́ЦЬ**, -рэ́ю, -рэ́еш, -рэ́е; *незак.* Рабіцца карэлым, каравым (ад гразі).

**КАРЭЯ́НКА** *гл.* карэйцы.

**КА́СА**, -ы, *мн.* -ы, кас, *ж.* **1.** Аддзяленне ў банку і іншых установах, дзе праводзяцца грашовыя аперацыі; памяшканне, дзе знаходзіцца гэта аддзяленне. *Разлічыцца ў касе. Білетная к. Магазінная к.* **2.** Наяўныя грошы ўстановы, прадпрыемства. *Здаць касу.* **3.** Апарат, на якім адціскаюцца квіткі з указаннем атрыманай сумы, а таксама кабінка, месца, дзе знаходзіцца гэты апарат і работнік, які яго абслугоўвае. *Выбіць у касе булку хлеба.* **4.** У друкарскай справе: скрынка з наборам друкарскага шрыфту (уст.). *Наборная к.* ‖ *прым.* **ка́савы**, -ая, -ае.

**КАСА́**[1], -ы́, *мн.* ко́сы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) касы́, кос, *ж.* Доўгія заплеценыя разам валасы. *Улажыць касу вакол галавы. Расплесці касу.*

**КАСА́**[2], -ы́, *мн.* ко́сы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) касы́, кос, *ж.* Ручная сельскагаспадарчая прылада, якая складаецца з доўгага загнутага ляза, насаджанага на касільна, і служыць для скошвання травы, збожжа і пад. *Кляпаць касу.* ◊ **Найшла каса на камень** — сутыкнуліся розныя непрымірымыя погляды, інтарэсы, характары. **Хоць касою касі** — вельмі многа. ‖ *памянш.* **ко́ска**, -і, *ДМ* -сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.*

**КАСА́**[3], -ы́, *мн.* ко́сы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) касы́, кос, *ж.* Доўгая вузкая паласа, што цягнецца ад берага; мыс. *Намыўная к.*

**КАСА́**[4], -ы́, *мн.* ко́сы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) касы́, кос, *ж.* (разм.). Селязёнка.

**КАСА...** (а таксама **коса...**). Першая састаўная частка складаных слоў, ужыв. замест «коса», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *касаплечы, касароты, касавокі.*

**КАСАБО́КІ**, -ая, -ае. З касым, крывым бокам. *Касабокая хатка.* ‖ *наз.* **касабо́касць**, -і, *ж.*

**КАСАБО́ЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *незак.* (разм.). Станавіцца касабокім, крывым. *Паркан касабочыцца.* ‖ *зак.* **скасабо́чыцца**, -чуся, -чышся, -чыцца.

**КАСАВАРО́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Мужчынская кашуля са стаячым каўняром, які зашпільваецца збоку.

**КАСАВА́ЦЬ**, касу́ю, касу́еш, касу́е; касу́й; касава́ны; *незак., што.* **1.** Закрэсліваць, выкрэсліваць. *К. напісанае.* **2.** Спыняць, адмяняць дзеянне чаго-н. *К. пастанову. К. шлюб. К. дамову.* **3.** Апратэстоўваць рашэнне суда ў касацыйным парадку (спец.). ‖ *зак.* **скасава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́й; -сава́ны (да 2 і 3 знач.). ‖ *наз.* **касава́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**КАСАВІ́ЛЬНА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (разм.). Тое, што і *кассё.*

**КАСАВІ́ЦА**, -ы, *ж.* Час касьбы. *Разгарнулася самая к.*

**КАСАВО́КАСЦЬ**, -і, *ж.* Стан вачэй, пры якім зрэнкі накіраваны ў розныя бакі.

**КАСАВО́КІ**, -ая, -ае. З касымі вачамі, які мае касавокасць.

**КАСАВУ́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *незак.* (разм.). **1.** *на каго-што.* Глядзець скоса. *К. на дзверы кабінета.* **2.** *перан., на каго-што.* Адносіцца з падазрэннем, недружалюбна. ‖ *зак.* **скасаву́рыцца**, -руся, -рышся, -рыцца (да 1 знач.).

**КАСАВУ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак., што* (разм.). Глядзець коса, убок (пра вочы). *Вока касавурыць.* ‖ *зак.* **скасаву́рыць**, -ру, -рыш, -рыць; -раны.

**КАСАГО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Схіл гары, пагорка. *Узбіраецца давялося па камяністым касагоры.*

**КАСАЛА́ПЫ**, -ая, -ае. Які пры хадзе ставіць ступні наскамі ўсярэдзіну або ў бакі. *К. мядзведзь.* ‖ *наз.* **касала́пасць**, -і, *ж.*

**КАСА́ТКА**[1], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Народная назва вясковай ластаўкі.

**КАСА́ТКА**[2], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Буйная драпежная млекакормячая жывёліна сямейства дэльфінавых, падобная на кіта.

**КАСАЎЁ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *н.* (разм.). Тое, што і *кассё.*

**КАСА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Абскарджанне і перагляд судовага рашэння, якое яшчэ не ўступіла ў законную сілу, вышэйстаячай судовай інстанцыяй па скарзе бакоў або пратэсце пракурора (спец.). *К. прысуду. Падаць на касацыю.* **2.** Заява з просьбай аб пераглядзе або адмене судовага рашэння (разм.). *Падаць касацыю.* **3.** Адмена выбараў або прызнанне іх несапраўднымі ў выніку парушэння выбарчага закона. ‖ *прым.* **касацы́йны**, -ая, -ае.

**КАСА́Ч**[1], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Травяністая расліна з доўгімі мечападобнымі лістамі і вялікімі кветкамі жоўтага, сіняга або фія-

летавага колеру. ‖ *прым.* **касачо́вы**, -ая, -ае. *Сямейства касачовых* (наз.).

**КАСА́Ч**[2], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Цецярук-самец, які ў адрозненне ад самкі мае ў хвасце доўгае выгнутае пер'е. ‖ *прым.* **касачо́вы**, -ая, -ае.

**КАСЕ́КАНС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адна з трыганаметрычных функцый — секанс дадатковага вугла.

**КАСЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -се́це, *мн.* -ы, касе́т, *ж.* **1.** Святлонепранікальны футляр для засцярогі святлоадчувальных матэрыялаў (фота-, кінаплёнкі і пад.). **2.** Стандартная па форме прылада, кантэйнер, у які змяшчаюцца якія-н. дэталі, матэрыялы. *Бомбавая к.* **3.** Плоская закрытая каробка для магнітафоннай стужкі. ‖ *прым.* **касе́тны**, -ая, -ае. *К. магнітафон.*

**КАСЕ́Ц**, касца́, *мн.* касцы́, касцо́ў, *м.* Той, хто косіць траву, збажыну.

**КАСІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Сельскагаспадарчая машына для касьбы.

**КАСІ́ЛЬНА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Тое, што і *касса́*.

**КАСІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Службовая асоба, якая распараджаецца касай, выдае і прымае грошы, каштоўныя паперы, прадае білеты; работнік ка́сы (у 1 і 3 знач.). ‖ *ж.* **касі́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **касі́рскі**, -ая, -ае.

**КАСІ́ЦЦА**, кашу́ся, ко́сішся, ко́сіцца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Станавіцца касым (у 1 знач.), крывіцца. *Вокны косяцца.* **2.** *на каго-што.* Глядзець коса, убок. *Конь косіцца на машыну.* **3.** *перан., на каго-што.* Адносіцца да каго-н. неадабральна, недаверліва, з падазрэннем (разм.). ‖ *зак.* **пакасі́цца**, -кашу́ся, -ко́сішся, -ко́сіцца (да 1 і 2 знач.) *і* **скасі́цца**, скашу́ся, ско́сішся, ско́сіцца (да 1 і 2 знач.).

**КАСІ́ЦЬ**[1], кашу́, ко́сіш, ко́сіць; ко́шаны; *незак.* **1.** *што.* Зразаць траву касой[2] або касілкай. *К. атаву.* **2.** *перан., каго (што).* Нішчыць, забіваць у вялікай колькасці. *Хвароба косіць людзей. Вайна нас гнула і касіла.* ‖ *зак.* **скасі́ць**, скашу́, ско́сіш, ско́сіць; ско́шаны. ‖ *наз.* **кашэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **касьба́**, -ы́, *ж.* (да 1 знач.).

**КАСІ́ЦЬ**[2], кашу́, ко́сіш, ко́сіць; *незак.* **1.** *што.* Рабіць касым, крывым; перакошваць. *К. рот.* **2.** *што* і *чым.* Глядзець коса, убок. *Конь касіў вокам на кучу канюшыны.* **3.** Быць касавокім, касым. *Левае вока косіць.* ‖ *зак.* **скасі́ць**, скашу́, ско́сіш, ско́сіць; ско́шаны (да 1 знач.) *і* **пакасі́ць**, -кашу́, -ко́сіш, -ко́сіць; -ко́шаны (да 1 знач.). *Скасіць вугал хаты. Вокны пакасіла* (безас.).

**КА́СКА**, -і, *ДМ* -сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Засцерагальны галаўны ўбор (звычайна металічны) у выглядзе шлема. *Салдацкая к. Пажарная к.* ‖ *прым.* **ка́сачны**, -ая, -ае.

**КАСКА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Натуральны або штучны вадаспад з уступамі. **2.** *перан., чаго.* Імклівая, нястрымная плынь чаго-н. *К. слоў.* **3.** Акрабатычны прыём, які імітуе падзенне з чаго-н. (з каня, веласіпеда, турніка і інш.; спец.). **4.** У аперэце: хуткі танец, які суправаджаецца спевамі. **5.** У тэхніцы: група паслядоўна звязаных і аб'яднаных у адну сістэму аднатыпных прыстасаванняў, збудаванняў і пад. (спец.). *К. гідраэлектрастанцый.* ‖ *прым.* **каска́дны**, -ая, -ае. *Каскадныя электрастанцыі.*

**КАСКАДЗЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Артыст, які ў кінафільмах выконвае складаныя і небяспечныя для жыцця трукі. ‖ *прым.* **каскадзёрскі**, -ая, -ае.

**КАСКЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Лёгкі мужчынскі галаўны ўбор з казырком і аколышкам.

**КА́СЛАЎКА**, -і, *ДМ* -лаўцы, *мн.* -і, -лавак, *ж.* (разм.). Пасма валасоў, травы, лёну і пад.

**КАСМА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да космасу, да касмалогіі, напр.: *касмафізіка, касмахімія, касмахраналогія;* 2) які мае адносіны да касманаўтыкі як да навукі, напр.: *касмабіялогія, касмамедыцына, касмапсіхалогія;* 3) які мае адносіны да касмічных палётаў, да знаходжання чалавека ў космасе, напр.: *касмаадкрывальнік, касмаплавальнік, касмаплаванне, касмапраходзец, касмацэнтр.*

**КАСМАГО́НІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Вучэнне аб паходжанні касмічных цел і іх сістэм. *К. Сонечнай сістэмы.* ‖ *прым.* **касмагані́чны**, -ая, -ае.

**КАСМАДРО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пляцоўка з комплексам спецыяльных збудаванняў і тэхнічных сродкаў для запуску касмічных караблёў і штучных спадарожнікаў Зямлі. ‖ *прым.* **касмадро́мны**, -ая, -ае.

**КАСМАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Вучэнне пра Сусвет як пра адзінае цэлае. ‖ *прым.* **касмалагі́чны**, -ая, -ае.

**КАСМАНА́ЎТ**, -а, *М* -на́ўце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст, удзельнік палёту ў космас. ‖ *ж.* **касмана́ўтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **касмана́ўцкі**, -ая, -ае.

**КАСМАНА́ЎТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Тэорыя і практыка палётаў у космас. *Дасягненні касманаўтыкі.*

**КАСМАПАЛІ́Т**, -а, *М* -ліце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік касмапалітызму. ‖ *ж.* **касмапалі́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **касмапалітычны**, -ая, -ае.

**КАСМАПАЛІТЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Ідэя сусветнага грамадзянства, якая ставіць агульначалавечыя інтарэсы і каштоўнасці вышэй за інтарэсы асобнай нацыі або ўвогуле адмаўляе паняцце нацыянальных традыцый і нацыянальнай культуры. **2.** Ідэалогія, светапогляд, згодна з якім усе народы належаць да адной супольнасці, заснаванай на агульнай маралі. ‖ *прым.* **касмапалітычны**, -ая, -ае.

**КАСМА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** З доўгай густой поўсцю; лахматы. *К. сабака. Касматая шапка.* **2.** З доўгімі валасамі; валасаты. *Касматая галава.* ‖ *наз.* **касма́тасць**, -і, *ж.*

**КАСМА́ЦІЦЬ**, -ма́чу, -ма́ціш, -ма́ціць; *незак., каго-што* (разм.). Рабіць касматым, лахматым. *К. валасы.* ‖ *зак.* **раскасма́ціць**, -ма́чу, -ма́ціш, -ма́ціць; -ма́чаны.

**КАСМАЧЫ́**, -о́ў (разм.). Доўгія ўзлахмачаныя пасмы валасоў.

**КАСМЕТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які займаецца лячэбнай касметыкай. ‖ *прым.* **касметалагі́чны**, -ая, -ае.

**КАСМЕТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па касметалогіі.

**КАСМЕ́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Вучэнне аб сродках і метадах паляпшэння знешняга выгляду чалавека. **2.** Сродкі і спосабы догляду скуры твару, цела і інш., якія выкарыстоўваюцца для падтрымання іх здаровага стану і прыгожага выгляду. *Дэкаратыўная к. Натуральная к. Магазін касметыкі.* ‖ *прым.* **касметы́чны**, -ая, -ае.

**КАСМЕТЫ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (разм.). **1.** Невялікая сумачка для прадметаў касметыкі. **2.** Спецыялістка па касметычным доглядзе твару, цела.

**КАСМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* космас. **2.** *перан.* Грандыёзны, велізарны. *Касмічныя маштабы.*

**КАСМЫ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *касмыль.*

**КАСМЫКАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). Які выступае касмыкамі, складаецца з касмыкоў. *Касмыкаватая кудзеля.* ‖ *наз.* **касмыкава́тасць**, -і, *ж.*

**КАСМЫ́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Пасма, касмыль (воўны, валасоў).

**КАСМЫ́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* (разм.). Скудлачаная пасма валасоў, воўны і пад. *Касмылі валасоў. К. кудзелі.* ‖ *памянш.* **касмылёк**, -льку́, *мн.* -лькі́, -лько́ў, *м.*

**КАСНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Вузкая палоска тканіны; істужка, якую ўплятаюць у касу[1]. *Завязаць каснікі бантам.* **2.** *перан.* Тое, што нагадвае сабой істужку, мае форму вузкай палоскі. ‖ *памянш.* **каснічо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **касні́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КАССЁ**, -я́, *мн.* ко́ссі *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) кассі́, ко́ссяў, *н.* Ручка ў касе[2]; касільна.

**КА́СТА**, -ы, *ДМ* ка́сце, *мн.* -ы, каст *і* -аў, *ж.* **1.** У краінах Усходу: грамадская група, адасобленая паходжаннем, родам заняткаў і прававым становішчам сваіх членаў. *К. брахманаў.* **2.** *перан.* Замкнутая грамадская групоўка, якая ахоўвае сваю адасобленасць і свае саслоўныя і групавыя прывілеі (неадабр.). ‖ *прым.* **ка́ставы**, -ая, -ае.

**КА́СТАВАСЦЬ**, -і, *ж.* Каставая замкнутасць, адасобленасць. *Саслоўная к.*

**КАСТАЕ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Хвароба, звязаная з паступовым разбурэннем касцявой тканкі.

**КАСТАНЬЕ́ТЫ**, -нье́т, *адз.* -а, -ы, *ж.* Ударны музычны інструмент — дзве злучаныя між сабой драўляныя ці пластмасавыя пласцінкі, якімі рытмічна пастукваюць, надзеўшы на пальцы. ‖ *прым.* **кастанье́тны**, -ая, -ае.

**КАСТАПРА́Ў**, -ра́ва, *мн.* -ра́вы, -ра́ваў, *м.* (уст.). Лекар, які ставіць на месца вывіхнутыя косці або правільна складае пераламаныя.

**КАСТАРЭ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Майстар разьбы па косці. || *прым.* **кастарэ́зны**, -ая, -ае. *Кастарэзнае мастацтва.*

**КАСТО́Р**, -у, *м.* Суконная шарсцяная тканіна з густым ворсам. || *прым.* **касто́равы**, -ая, -ае.

**КАСТРА́**, -ы́, *ж.* Тое, што і *кастрыца.* || *прым.* **кастро́вы**, -ая, -ае.

**КАСТРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, каго кастрыравалі; скапец.

**КАСТРУБАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Шурпаты, нягладкі. *Каструбаватая дошка.* || *наз.* **каструбава́тасць**, -і, *ж.*

**КАСТРУ́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, -ру́ль, *ж.* Пасудзіна, звычайна цыліндрычнай формы, з ручкамі і крышкай для прыгатавання ежы метадам варкі. || *памянш.-ласк.* **кастру́лька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* || *прым.* **кастру́льны**, -ая, -ае.

**КАСТРЫ́ВЫ**, -ая, -ае. З кастрой, кастрыцай. *Кастрывая кудзеля.* || *наз.* **кастры́васць**, -і, *ж.*

**КАСТРЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго (што).* Вы́разаць (выраза́ць) палавыя залозы; палягчаць (лягчаць). || *наз.* **кастра́цыя**, -і, *ж. і* **кастры́раванне**, -я, *н.*

**КАСТРЫ́ЦА**, -ы, *ж.* Адходы лёну і канапель, якія атрымліваюцца пасля перацірання і трапання. || *прым.* **кастры́чны**, -ая, -ае *і* **кастры́цавы**, -ая, -ае.

**КАСТРЫ́ЧНІК**, -а, *м.* **1.** Дзясяты месяц каляндарнага года. **2.** (з вялікай літары). Рэвалюцыя 1917 года, а таксама яе гадавіна 7 лістапада (25 кастрычніка па старым стылі). *Свята Кастрычніка.* || *прым.* **кастры́чніцкі**, -ая, -ае. *Кастрычніцкія святы.*

**КАСТРЫ́ШЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Тое, што і *вогнішча.*

**КАСТЫ́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* (спец.). **1.** Апора для чалавека без ног або з хворымі нагамі; мыліца. **2.** Металічны шпень, які забіваецца ў шпалу для прымацавання да яе рэйкі. || *прым.* **касты́льны**, -ая, -ае.

**КАСТЭЛЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Жанчына, якая ведае бялізнай у бальніцы, інтэрнаце, доме адпачынку і пад.

**КАСТЭ́Т**, -а, *М* -тэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Халодная зброя ў выглядзе металічнай пласцінкі, якая надзяваецца на пальцы і заціскаецца ў кулаку. *Выцяць кастэтам.* || *прым.* **кастэ́тны**, -ая, -ае.

**КАСЦЁЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Назва каталіцкага храма. || *прым.* **касце́льны**, -ая, -ае. *Касцельныя званы.*

**КАСЦЁР**[1], -стра́, *мн.* -стры́, -стро́ў, *м.* Складзеныя пэўным парадкам папілаваныя і паколатыя дровы. *Скласці дровы ў к.*

**КАСЦЁР**[2], -стра́, *мн.* -стры́, -стро́ў, *м.* Тое, што і *вогнішча* (у 1 знач.). *Распаліць к.* || *прым.* **кастро́вы**, -ая, -ае.

**КАСЦІ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** З шырокімі буйнымі касцямі. *Касцістая фігура.* **2.** З вялікай колькасцю дробных касцей. *Акунь — рыба касцістая.* || *наз.* **касці́стасць**, -і, *ж.*

**КАСЦЮ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Мужчынскае (пінжак і штаны) ці жаночае (жакет і спадніца) верхняе адзенне. *Пашыць к.* **2.** (часцей з азначэннем). Адзенне спецыяльнага прызначэння. *Спартыўны к. Маскарадны к.* || *памянш.* **касцю́мчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* || *прым.* **касцю́мны**, -ая, -ае.

**КАСЦЮМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па тэатральных касцюмах; работнік касцюмернай. || *ж.* **касцюме́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак.

**КАСЦЮМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да тэатральных і маскарадных касцюмаў, звязаны з іх вырабам, падрыхтоўкай і захоўваннем. *Касцюмерная майстэрня.* **2.** *у знач. наз.* **касцюме́рная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Аддзел у тэатры, дзе захоўваюцца касцюмы, ці майстэрня, дзе яны рыхтуюцца. *Атрымаць касцюм у касцюмернай.*

**КАСЦЮМІ́РАВАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Адзеты ў тэатральны або маскарадны касцюм. *Касцюміраваныя вучні.* **2.** Які праходзіць, адбываецца з удзелам людзей у маскарадных касцюмах. *Касцюміраванае выступленне.*

**КАСЦЮМІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго (што).* Адзець (адзяваць) у тэатральны або маскарадны касцюм. || *звар.* **касцюмі́равацца**, -руюся, -руешся, -руецца. || *наз.* **касцюмі́раванне**, -я, *н.*

**КАСЦЯВЫ́** *гл.* косць.

**КАСЦЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Тое, што і *шкілет.* **2.** *перан.* Асноўная, важная частка чаго-н. *К. арганізацыі.*

**КАСЦЯНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ператварацца ў косць, станавіцца косцю. *Рогі ў цяляці касцянеюць.* **2.** *перан.* Станавіцца нерухомым, дзеравянець ад холаду. *Ногі пачынаюць к. ад холаду.* || *зак.* **закасцяне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е *і* **акасцяне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**КАСЦЯНІ́ЦЫ**, -ні́ц, *адз.* -ні́ца, -ы, *ж.* Лясная травяністая ягадная расліна сямейства ружакветных, а таксама яркачырвоныя кіслыя ягады гэтай расліны. || *прым.* **касцяні́чны**, -ая, -ае.

**КАСЦЯ́НКІ**, -нак, *адз.* -нка, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.). Тое, што і *касцяніцы.* || *прым.* **касця́начны**, -ая, -ае *і* **касця́нкавы**, -ая, -ае.

**КАСЦЯНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* косць. **2.** Здабыты, прыгатаваны з касцей жывёлы. *К. клей. Касцяная мука.*

**КАСЫ́**, -а́я, -о́е *і* **КО́СЫ**, -ая, -ае. **1.** Размешчаны, накіраваны пад вуглом да гарызантальнай паверхні, не адвесны. *К. прамень. К. почырк.* **2.** Скрыўлены, несіметрычны. *Касая рама. Касыя дзверы.* **3.** Касавокі. *Касая дзяўчына.* **4.** Размешчаны не пасярэдзіне, а збоку. *К. каўнер. Касая засцежка.* **5.** *перан.* Недружалюбны, падазроны (пра позірк, погляд). *Касыя позіркі. Коса* (прысл.) *глядзець на каго-н.* ○ **Касы вугал** — вугал, які большы або меншы за прамы. **Касы парус** (спец.) — трохвугольны парус. ◊ **Касы сажань у плячах** (разм.) — шыракаплечы, магутнага складу (пра чалавека).

**КАСЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Хусцінка трохвугольнай формы, якую носяць на галаве або шыі. || *памянш.* **касы́начка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* || *прым.* **касы́начны**, -ая, -ае.

**КАСЯ́К**[1], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Тое, што і *вушак.* || *прым.* **кася́чны**, -ая, -ае.

**КАСЯ́К**[2], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Чарада птушак, рыб. *К. журавоў.* || *прым.* **кася́чны**, -ая, -ае *і* **касяко́вы**, -ая, -ае.

**КАТ**, ка́та, *М* ка́це, *мн.* ка́ты, -аў, *м.* **1.** Асоба, якая прыводзіць у выкананне смяротны прыгавор, учыняе кару, катуе. **2.** *перан.* Жорсткі мучыцель, прыгнятальнік. || *прым.* **ка́таўскі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**КАТАВА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Месца катаванняў. || *прым.* **катава́льны**, -ая, -ае.

**КАТАВА́СІЯ**, -і, *ж.* **1.** Песнапенне, што выконваецца абодвума клірасамі, якія выходзяць на сярэдзіну царквы. **2.** *перан.* Беспарадак, неразбярыха (жарт.).

**КАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., каго (што).* Моцна і балюча біць, жорстка мучыць. *К. на допыце. Не катуй сябе.* || *зак.* **скатава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. || *наз.* **катава́нне**, -я, *н.* *У фашысцкім лагеры смерці было нечалавечае катаванне людзей.*

**КАТАКЛІ́ЗМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Нечаканa рэзкі перавалом, разбуральны пераварот (у прыродзе, грамадстве).

**КАТАКО́МБЫ**, -аў, *адз.* -а, -ы, *ж.* Падзямеллі, пячоры з вузкімі і доўгімі хадамі [першапачаткова служылі сховішчам для першых хрысціян у Старажытным Рыме]. || *прым.* **катако́мбны**, -ая, -ае.

**КАТАЛАГІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Скласці (складаць) каталог чаго-н. || *наз.* **каталагіза́цыя**, -і, *ж.*

**КАТАЛА́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* (разм.). Турма, месца зняволення. *Трапіць у каталажку.*

**КАТА́ЛІЗ**, -у, *м.* (спец.). Узбуджэнне хімічнай рэакцыі або змяненне яе хуткасці пад уздзеяннем каталізатара. || *прым.* **ката́лізны**, -ая, -ае.

**КАТАЛІЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Рэчыва, якое паскарае ход хімічнай рэакцыі. || *прым.* **каталіза́тарны**, -ая, -ае.

**КАТАЛІ́К** *гл.* католік.

**КАТАЛІКО́С**, -а, *м.* Тытул патрыярха ў армяна-грыгарыянскай, а таксама ў грузінскай праваслаўнай царкве.

**КАТАЛІЦЫЗМ**, -у, *м. і* **КАТАЛІ́ЦТВА**, -а, *н.* Адзін з асноўных кірункаў хрысціянства з царкоўнай арганізацыяй, якую ўзначальвае Папа Рымскі. || *прым.* **каталі́цкі**, -ая, -ае.

**КАТАЛІ́ЧКА** *гл.* католік.

**КАТАЛО́Г**, -а, *М* -ло́зе, *мн.* -і, -аў, *м.* Спіс, сістэматызаваны пералік якіх-н. аднародных прадметаў (кніг, экспанатаў, тавараў і пад.). *К. часопісаў. К. крытычнай літаратуры. Зорны к.* ‖ *прым.* **катало́жны**, -ая, -ае.

**КАТА́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* (уст.). Рабочы, які займаецца падвозам грузаў на тачцы.

**КАТАМАРА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Парусное або маторнае судна з двух паралельных карпусоў, злучаных між сабой агульнай палубай. *Пасажырскі к.* **2.** Невялікае прагулачнае судна з парным сядзеннем, якое працуе па прынцыпе веласіпеда; водны веласіпед. ‖ *прым.* **катамара́нны**, -ая, -ае.

**КАТА́НГЕНС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Трыганаметрычная функцыя, роўная адносінам косінуса да сінуса.

**КАТАПУ́ЛЬТА**, -ы, *ДМ* -льце, *мн.* -ы, -льт *і* -льтаў, *ж.* **1.** У старажытнасці: прыстасаванне для кідання на вялікую адлегласць камення, бочак з запаленай смалой і пад., якое прымянялася пры асадзе крэпасцей. **2.** Механізм для паскарэння старту самалёта з палубы карабля (спец.). **3.** Аўтаматычнае прыстасаванне для выкідвання з самалёта лётчыкаў, касманаўтаў з далейшым спускам на парашуце (спец.). ‖ *прым.* **катапу́льтны**, -ая, -ае.

**КАТАПУЛЬТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго-што* (спец.). Выкінуць (выкіда́ць) з самалёта пры дапамозе катапульты (у 3 знач.). ‖ *звар.* **катапультава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся. *Лётчык катапультаваўся.*

**КА́ТАР**¹, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Запаленне слізістай абалонкі якога-н. органа. *К. страўніка.* ‖ *прым.* **катара́льны**, -ая, -ае.

**КА́ТАР**², -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Невялікае вяслярнае або самаходнае судна для транспартных, спартыўных і прамысловых мэт. *К. на падводных крылах.* **2.** Малы ваенны карабель спецыяльнага або дапаможнага прызначэння. *Тарпедны к.* ‖ *прым.* **ка́тарны**, -ая, -ае.

**КАТАРА́КТА**, -ы, *ДМ* -кце, *ж.* Памутненне крышталіка вока, якое выклікае аслабленне і страту зроку. *Вылечыць катаракту.* ‖ *прым.* **катара́ктны**, -ая, -ае.

**КА́ТАРГА**, -і, *ДМ* -рзе, *ж.* **1.** Цяжкія прымусовыя работы для зняволеных у турмах ці ў іншых месцах зняволення ўзмоцненага рэжыму. *Саслаць на катаргу.* **2.** *перан.* Пра цяжкую працу, невыноснае жыццё. *Не работа, а к.* ‖ *прым.* **ка́таржны**, -ая, -ае. *Катаржная праца.*

**КАТАРЖА́НІН**, -а, *мн.* -жа́не *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) -жа́ніны, -жа́н, *м.* Чалавек, які адбывае катаргу або які быў на катарзе. ‖ *ж.* **катаржа́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **катаржа́нскі**, -ая, -ае.

**КА́ТАРЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *катаржанін.* ‖ *ж.* **ка́таржніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **ка́таржніцкі**, -ая, -ае.

**КАТАСТРАФІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які з'яўляецца катастрофай, вядзе да катастрофы. *Катастрафічнае становішча.* ‖ *наз.* **катастрафі́чнасць**, -і, *ж.*

**КАТАСТРО́ФА**, -ы, *мн.* -ы, -ро́ф, *ж.* **1.** Падзея з трагічнымі вынікамі, раптоўнае вялікае бедства. *Дарожная к. Авіяцыйная к.* **2.** Значная змена, якая цягне за сабой рэзкі пералом у грамадскім або асабістым жыцці. *Нацыянальная к. Сямейная к.* **3.** Нечаканая і грандыёзная падзея ў гісторыі планеты, якая робіць уплыў на яе далейшае існаванне (спец.). *Тэорыя катастроф.* ‖ *прым.* **катастро́фны**, -ая, -ае.

**КАТАФА́ЛК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Транспартны сродак для дастаўкі труны з целам нябожчыка. **2.** Высокая падстаўка для труны. ‖ *прым.* **катафа́лкавы**, -ая, -ае.

**КАТА́Х**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Суквецце з патоўшчанай воссю, на якой шчыльна сядзяць кветкі; насенне. *К. кукурузы. Катахі вярбы.* ‖ *памянш.* **каташо́к**, -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.* ‖ *прым.* **ката́шны**, -ая, -ае.

**КАТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Ездзіць на чым-н., у чым-н. дзеля прагулкі. *К. на кані. К. на лыжах.* **2.** Шмат разоў ездзіць куды-н., раз'язджаць (разм.). *К. за дзяржаўны кошт.* ‖ *наз.* **ката́нне**, -я, *н.*

**КАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак.* **1.** *каго (што).* Вазіць на чым-н. дзеля прагулкі, забавы. *К. на лодцы. К. на машыне.* **2.** *што.* Апрацоўваць шляхам пракаткі (спец.). *К. ліставое жалеза.* ‖ *наз.* **ката́нне**, -я, *н.*

**КАТЛАВА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паглыбленне ў зямлі для закладкі фундамента якога-н. збудавання. ‖ *прым.* **катлава́нны**, -ая, -ае.

**КАТЛАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* Паглыбленне, упадзіна на паверхні зямлі або на дне мора, акіяна. ‖ *прым.* **катлаві́нны**, -ая, -ае.

**КАТЛЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -ле́це, *мн.* -ы, -ле́т, *ж.* Засмажаны кусок мяса з рабрынкай (адбіўная катлета) або кулінарны выраб авальнай ці круглай формы з рыбнага, мясного фаршу, кашы і г.д. *Катлеты з цяляціны. Рыбныя катлеты.* ‖ *памянш.* **катле́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* ‖ *прым.* **катле́тны**, -ая, -ае.

**КАТО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Адмоўны электрод; *проціл.* анод. ‖ *прым.* **като́дны**, -ая, -ае.

**КАТО́К**¹, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* Пакрытая лёдам гарызантальная пляцоўка для катання на каньках.

**КАТО́К**², -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* **1.** У будаўніцтве: машына са стальнымі валкамі для ўшчыльнення і выраўноўвання грунту, дарожных пакрыццяў і інш. **2.** Круглая драўляная калодка, па якой перакочваюць цяжкія прадметы. *Перакочваць бярвенне на катках.*

**КАТО́К**³, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* **1.** *гл.* кот. **2.** Ласкавы зварот да хлопчыка. *Андрэйка, мой каток, дапамажы мне.*

**КАТО́К**⁴, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* Суквецце дробных кветак у выглядзе маленькіх пушыстых шарыкаў (на вярбе, лазе і інш.).

**КАТО́ЛІК**, -а, *мн.* -і, -аў *і* **КАТАЛІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто прыняў каталіцтва і прытрымліваецца ўсіх абрадаў каталіцкай царквы. ‖ *ж.* **каталі́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**КАТО́РЫ**, -ая, -ае, *займ.* **1.** *пыт.* і *адносны.* Які іменна, які з некалькіх, які па парадку. *К. сыну год? К. раз едзеш у Полацк? Вазьмі касу, каторай учора касіў.* **2.** *неазнач.* Не першы, не адзін, а некалькі. *К. раз іду я гэтым лесам. К. год чакаем сына на пабыўку. К. час няма добрага надвор'я.* **3.** *неазнач.*, часцей *мн.* Іншыя, некаторыя (разм.). *Каторыя ўжо прыехалі, а каторыя яшчэ ў дарозе.*

**КАТО́РЫ-НЕ́БУДЗЬ**, -ая-не́будзь, -ае-не́будзь, *займ. неазнач.* Які-небудзь, хто-небудзь з некалькіх, з многіх.

**КАТО́ЎНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* (разм.). Тое, што і *катавальня.*

**КАТРЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Пераносны механічны арган у выглядзе металічнай скрынкі, на якім ігралі вандроўныя музыканты. ◊ **Завесці катрынку** (разм., неадабр.) — пачаць дакучлівую размову, гаварыць адно і тое ж. ‖ *прым.* **катры́начны**, -ая, -ае.

**КАТРЫ́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вандроўны музыкант з катрынкай.

**КАТУ́РХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што* (разм.). Штурхаць каго-н., прымушаць ачнуцца, прыйсці да памяці. *К. сына раніцай.*

**КАТУ́Х**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Невялікі хлеў або адгароджанае месца ў хляве. *К. для свіней.* **2.** *перан.* Пра цёмны, малы пакой або хату (разм.). *Сем гадоў жыву ў гэтым катуху.* ‖ *памянш.* **катушо́к**, -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.*

**КАТУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (спец.). Цыліндр для намотвання дроту, ніток, лёскі і пад. ‖ *прым.* **кату́шачны**, -ая, -ае.

**КАТЭГАРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Безумоўны, рашучы, які не дапускае пярэчанняў. *К. загад. Катэгарычнае патрабаванне. Катэгарычная думка. К. адказ.* ‖ *наз.* **катэгары́чнасць**, -і, *ж.*

**КАТЭГО́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* **1.** У філасофіі: асноўнае паняцце, якое адлюстроўвае найбольш істотныя сувязі і адносіны рэальнай рэчаіснасці і пазнання. *К. часу. К. формы і зместу.* **2.** У навуковай тэрміналогіі: родавае паняцце, якое абазначае разрад з'яў, прадметаў ці найбольш агульную іх прымету. *Граматычныя катэгорыі. К. роду. Гістарычныя катэгорыі.* **3.** Група асоб, аднародных прадметаў, з'яў, аб'яднаных агульнасцю якіх-н. прымет. *Розныя катэгорыі людзей.* ‖ *прым.* **катэгарыя́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.; кніжн.).

**КАТЭ́ДЖ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Індывідуальны гарадскі ці сельскі жылы дом (зabsы-

**КІ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Хутка рынуцца куды-н. *К. на дапамогу. К. на ворага. К. за кім-н.* **2.** Паспешліва, імкліва пачаць якое-н. дзеянне. *К. ў спрэчку. К. дапамагаць.* **3.** Праявіць моцнае імкненне да каго-н. у выражэнні якіх-н. пачуццяў. *К. на шыю.* **4.** Напасці, накінуцца на каго-, што-н. *Сабака кінуўся на незнаёмага.* **5.** Скокнуць з вышыні. *К. з берага ў рэчку.* ◊ **Кінуцца ў вочы** — стаць асабліва прыметным. ‖ *незак.* **кіда́цца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**КІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; кінь; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што* і *чым.* Штуршком рукі (рук) прымусіць што-н. ляцець (упасці). *К. камень. К. снежкай у каго-н.* **2.** *што.* Тое, што і *выкінуць* (у 1 знач.). **3.** *перан., каго-што.* Хутка перамясціць, накіраваць, паслаць куды-н. *К. атрад на выкананне задання.* **4.** Зірнуць, хутка паглядзець (у спалучэнні са словамі «погляд», «позірк»). *К. позірк на каго-, што-н.* **5.** Сказаць, выказаць што-н. рэзка, нечакана; звярнуцца да каго-н. *К. кпіну. К. заўвагу.* **6.** *каго-што* і *інф.* Пайсці ад каго-, чаго-н.; пакінуць. *Кажуць, ён кінуў жонку.* **7.** Перастаць рабіць што-н., займацца чым-н. *К. курыць. К. вучобу.* **8.** *што.* Працягнуць ніткі праз бёрда (спец.). *К. у бёрда.* **9.** *безас., каго-што ў што.* Ахапіць, працяць чым-н. *К. у гарачку. К. у сон.* **10.** *заг.* **кінь(це)**, таксама *з інф.* Ужыв. ў знач. спыні(це), не трэба, хопіць (разм.). *Кіньце спрачацца!* ‖ *незак.* **кіда́ць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **кіда́нне**, -я, *н.*

**КІ́ПА**, -ы, *мн.* -ы, кіп, *ж.* **1.** Вязка або пачак якіх-н. прадметаў, складзеных адзін на адзін; стос. *К. сшыткаў.* **2.** Вялікая ўпаковачная мера (спец.). *К. бавоўны.*

**КІПАРЫ́С**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Паўднёвае вечназялёнае хвойнае дрэва сямейства кіпарысавых. **2.** -у. Драўніна гэтай расліны. *Зроблены з кіпарысу.* ‖ *прым.* **кіпары́савы**, -ая, -ае *і* **кіпары́сны**, -ая, -ае.

**КІ́ПЕНЬ**, -ю, *м.* Вада ў час кіпення; вар.

**КІ́ПЕЦЬ**, -пця, *мн.* -пці, -пцяў, *м.* (разм.). Тое, што і *кіпцюр.* ‖ *прым.* **кі́пцевы**, -ая, -ае.

**КІПЕ́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́; *незак.* **1.** Даходзіць да стану кіпення; закіпаць. *Вада кіпіць пры 100° па Цэльсію.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Булькаць, клекатаць ад пары, якая ўтвараецца пры награванні (пра вадкасці). *Малако кіпіць. Чайнік кіпіць.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., ад чаго* і *без дап.* Віраваць, клекатаць (пра вадкасці ў халодным стане). *Возера кіпела ад рыбы.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Развівацца, праяўляцца з сілай, бурна. *Работа кіпіць. Нянавісць кіпела ў сэрцы.* **5.** *перан., чым* і *без дап.* Быць узрушаным, ахопленым якім-н. пачуццём. *Так і кіпіць чалавек злосцю. Кіпела* (безас.) *у той час у душы.* ‖ *зак.* **закіпе́ць**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́ (да 1, 2 і 4 знач.) *і* **ускіпе́ць**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́ (да 4 знач.). ‖ *наз.* **кіпе́нне**, -я, *н.*

**КІПРЫЁТЫ**, -аў, *адз.* -ёт, -а, *М* -ёце, *м.* Жыхары Рэспублікі Кіпр. ‖ *ж.* **кіпрыётка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **кіпрыёцкі**, -ая, -ае.

**КІПУ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Бурлівы, пеністы. *К. вадаспад.* **2.** *перан.* Напружаны, дзейны. *Кіпучая дзейнасць.* ‖ *наз.* **кіпу́часць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**КІПЦЮ́Р** *і* **КАПЦЮ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Востры загнуты рагавы прыдатак на пальцах птушак, многіх паўзуноў і млекакормячых. **2.** Пазногаць (разм.). ◊ **Паказаць кіпцюры** — пра пагрозу. **Трапіць у кіпцюры** *каму* — аказацца, быць пад уладай каго-н. ‖ *памянш.* **кі́пцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*; *прым.* **кі́пцікавы**, -ая, -ае. ‖ *прым.* **кіпцю́рны**, -ая, -ае *і* **капцю́рны**, -ая, -ае.

**КІПЦЮРА́СТЫ**, -ая, -ае. З вялікімі і вострымі кіпцюрамі. ‖ *наз.* **кіпцюра́стасць**, -і, *ж.*

**КІПЯЦІ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Электранагравальная прылада ў выглядзе спіралі для кіпячэння вады.

**КІПЯЦІ́ЦЦА**, -пячу́ся, -пяці́шся, -пяці́цца; -пяці́мся, -пецяце́ся, -пяця́цца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Награвацца да кіпення. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Варыцца ў кіпячай вадзе. **3.** *перан.* Гарачыцца, злавацца (разм.). *Ты дарэмна не кіпяціся.* ‖ *зак.* **закіпяці́цца**, -пячу́ся, -пяці́шся, -пяці́цца; -пяці́мся, -пецяце́ся, -пяця́цца (да 1 і 2 знач.).

**КІПЯЦІ́ЦЬ**, -пячу́, -пяці́ш, -пяці́ць; -пяці́м, -пеціце́, -пяця́ць; -пячо́ны; *незак., што.* **1.** Награваючы, даводзіць да кіпення; гатаваць. *К. малако.* **2.** Трымаць, варыць у кіпені; стэрылізаваць. ‖ *зак.* **закіпяці́ць**, -пячу́, -пяці́ш, -пяці́ць; -пяці́м, -пеціце́, -пяця́ць; -пячо́ны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **кіпячэ́нне**, -я, *н.*

**КІПЯЧО́НЫ**, -ая, -ае. Такі, які кіпеў. *Кіпячонае малако.*

**КІРАВА́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* Здольнасць паддавацца кіраванню (пра механізм, машыну). *Лёгкая к. машыны.*

**КІРАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* кіраваць. **2.** Дзейнасць органаў дзяржаўнай улады. *Органы дзяржаўнага кіравання.* **3.** Сукупнасць прыбораў, пры дапамозе якіх кіруюць механізмам. *Аўтаматычнае к.* **4.** У граматыцы: сінтаксічная сувязь, якая выражаецца ў тым, што адно слова патрабуе пасля сябе дапаўнення (у 3 знач.) у пэўным склоне. *Дзеяслоўнае к.*

**КІРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *незак.* **1.** *чым.* Накіроўваць сваю дзейнасць, працаваць у адпаведнасці з чым-н., у залежнасці ад чаго-н. *К. правілам. К. перадавымі ідэямі.* **2.** Браць, трымаць кірунак, рухацца куды-н. *К. на Мінск. К. на бліжэйшую вёску.*

**КІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак.* **1.** *кім-чым.* Карыстаючыся прыборамі, рулём і пад., рэгуляваць ход, рух каго-, чаго-н. *К. канём. К. маторнай лодкай.* **2.** *кім-чым.* Быць на чале чаго-н. *К. краінай. К. заводам.* **3.** *кім-чым.* Накіроўваць чыю-н. дзейнасць, быць кіраўніком каго-, чаго-н. *К. курсавой работай студэнта. К. аркестрам.* **4.** Тое, што і *кіравацца* (у 2 знач.; разм.). *Каровы кіруюць да стагоў.* **5.** *перан.* Быць пабуджальнай прычынай, пачаткам чаго-н. *Мной кіравала пачуццё жалю.* **6.** У граматыцы: патрабаваць пасля сябе пэўнага ўскоснага склону. ‖ *наз.* **кірава́нне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.) *і* **кіраўні́цтва**, -а, *н.* (да 2 і 3 знач.).

**КІРА́СА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́с, *ж.* Латы, металічны панцыр на спіну і грудзі.

**КІРАСІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Коннік цяжкай кавалерыі, які даўней насіў кірасу. ‖ *прым.* **кірасі́рскі**, -ая, -ае.

**КІРАЎНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Асоба, якая кіруе кім-, чым-н. *К. вытворчага аб'яднання.* ‖ *ж.* **кіраўні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц. ‖ *прым.* **кіраўні́цкі**, -ая, -ае.

**КІРАЎНІ́ЦТВА**, -а, *н.* **1.** *гл.* кіраваць. **2.** Падраздзяленне якой-н. установы, буйная адміністрацыйная адзінка. *К. справамі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.* **3.** *зб.* Кіраўнікі. *Змяніць кіраўніцтва.* ‖ *прым.* **кіраўні́цкі**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.) *і* **кіраўні́чы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**КІРГІ́ЗЫ**, -аў, *адз.* -гі́з, -а, *м.* Народ цюркскай моўнай групы, які складае карэннае насельніцтва Рэспублікі Кыргызстан. ‖ *ж.* **кіргі́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак. ‖ *прым.* **кіргі́зскі**, -ая, -ае.

**КІ́РЗА**, -ы, *ж.* Заменнік скуры: насычаная спецыяльным хімічным рэчывам тканіна з кручаных нітак. ‖ *прым.* **кі́рзавы**, -ая, -ае. *Кірзавыя боты.*

**КІ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Ручная прылада — прадаўгаваты, завостраны з двух канцоў малаток для драблення цвёрдай пароды або лёду. ‖ *прым.* **кі́ркавы**, -ая, -ае.

**КІРМА́Ш**, -у́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Вялікі продаж тавараў, які праводзіцца ў пэўную пару года ў вызначаным месцы і часта звязаны з выстаўкай. *Вясенні Лейпцыгскі к.* **2.** *перан.* Шумнае, ажыўленае зборышча людзей (разм.). ‖ *прым.* **кірмашо́вы**, -ая, -ае.

**КІРМАШО́ВЕЦ**, -шо́ўца, *мн.* -шо́ўцы, -шо́ўцаў, *м.* Удзельнік кірмашу.

**КІРО́ЎЦА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто кіруе аўтамабілем або іншым транспартным сродкам. *К. тралейбуса.*

**КІ́РПА**, -ы, *мн.* -ы, кірп *і* -аў, *ж.* (разм.). Пра кароткі і задраны ўгору нос.

**КІРПАНО́СЫ**, -ая, -ае. З кароткім і задраным носам. *Кірпаносая дзяўчынка.* ‖ *наз.* **кірпано́сасць**, -і, *ж.*

**КІРПА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Кароткі і задраны ўгору (пра нос). **2.** Тое, што і *кірпаносы.* ‖ *наз.* **кірпа́тасць**, -і, *ж.*

**КІРУ́НАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* **1.** Узяты напрамак куды-н. *Эшалон узяў к. на ўсход.* **2.** *перан., чаго* або *які.* Шлях развіцця, накіраванасць якога-н. дзеяння, з'яў і пад. *К. ваеннай палітыкі. Гаворка ішла ў розных кірунках.* **3.** Грамадская, навуковая, літаратурная і пад. плынь; групоўка, школа. *Літаратурныя кірункі.*

**КІРУ́ЮЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, якому належыць кіраўніцтва (у 1 знач.), які кіруе, дае прынцыповыя ўказанні. *К. цэнтр.* **2.** Такі, якім трэба кіравацца. *Кіруючыя ўказанні.*

**КІ́РХА**, -і, *ДМ* -рсе, *мн.* -і, кірх *і* -аў, *ж.* Лютэранская царква.

**КІРЫ́ЛІЦА**, -ы, *ж.* Адна з дзвюх стараславянскіх азбук, якая лягла ў аснову рускага, беларускага, украінскага і іншых алфавітаў. *К. і глаголіца.* ‖ *прым.* **кіры́ліцкі**, -ая, -ае *і* **кірылі́чны**, -ая, -ае. *Кірыліцкае пісьмо. Кірылічныя пісьмовыя помнікі.*

**КІ́СА**, -ы, *ж.* (разм.). Ласкальная назва кошкі. ‖ *памянш.* **кі́ска**, -і, *ДМ* кі́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.*

**КІСЕ́ЛЬ**, -сялю́, *мн.* -сялі́, -сялёў, *м.* Студзяністая страва з аўсянай мукі або ягаднага соку, заваранага на крухмале. *К. з журавін. Аўсяны к.* ◊ **Дзясятая вада на кісялі** — пра вельмі далёкага родзіча. ‖ *прым.* **кісе́льны**, -ая, -ае.

**КІСЕ́Т**, -а, *М* -се́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Маленькі мяшочак для табакі, які зацягваецца шнурком. ‖ *прым.* **кісе́тны**, -ая, -ае.

**КІСЛАМАЛО́ЧНЫ**, -ая, -ае. Пра прадукты: прыгатаваны з малака (са смятанкі, сыроваткі) шляхам сквашвання. *К. сыр.*

**КІСЛАРО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Хімічны элемент, празрысты бясколерны газ, які ўваходзіць у склад паветра і неабходны для дыхання і гарэння. ‖ *прым.* **кісларо́дны**, -ая, -ае. *Кіслароднае галаданне* (востры недахоп кіслароду ў арганізме; спец.).

**КІ́СЛА-САЛО́ДКІ**, -ая, -ае. Які мае адначасова і кіславаты і саладкаваты смак. *Кісла-салодкія яблыкі.*

**КІСЛАТА́**, -ы́, *ДМ* -лаце́, *ж.* **1.** *гл.* кіслы. **2.** *мн.* **кісло́ты**, -ло́т. Хімічнае злучэнне, якое змяшчае вадарод, здольны замяшчацца металам пры ўтварэнні солей. *Азотная к. Саляная к.* ‖ *прым.* **кісло́тны**, -ая, -ае.

**КІСЛІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Кіславаты прысмак у чым-н. *Слівы з кіслінкай.*

**КІСЛІ́ЦА**, -ы, *ж.* Травяністая расліна з белымі кветкамі, у лісцях якой знаходзіцца шчаўевая кіслата. ‖ *прым.* **кіслі́чны**, -ая, -ае.

**КІСЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; кі́слены; *незак., што.* Рабіць кіслым. *К. боршч.*

**КІСЛО́ТНАСЦЬ**, -і, *ж.* Ступень змяшчэння кіслаты ў чым-н. *К. глебы. Павышаная к. страўнікавага соку.*

**КІСЛО́ТНЫ** *гл.* кіслата.

**КІ́СЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае своеасаблівы смак, падобны на смак лімона, журавін. *К. яблык. К. сок.* **2.** Які закіс у выніку браджэння, прыгатаваны квашаннем. *Кіслае малако. Кіслая капуста.* **3.** *перан.* Які выражае незадаволенасць; паніклы (разм.). *К. настрой. К. выраз твару.* **4.** Які змяшчае кіслату (у 2 знач.; спец.). *Кіслая глеба.* ‖ *наз.* **кіслата́**, -ы́, *ДМ* -лаце́, *ж.*

**КІСЛЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм., пагард.). Тое, што і *кісляціна* (у 2 знач.).

**КІСЛЯ́ЦІНА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Што-н. вельмі кіслае. *Не сліва, а к.* **2.** *перан.* Вялы, нудны чалавек.

**КІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; кіс, кі́сла; -ні; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Рабіцца кіслым ад браджэння. *Смятана кісне ў цёплым месцы.* **2.** *перан.* Быць паніклым, вялым (разм.). *Не к. трэба, а сур'ёзна займацца чым-н. цікавым.* ‖ *зак.* **пракі́снуць**, -не; -кі́с, -сла (да 1 знач.).

**КІСТА́**, -ы́, *ДМ* -сце́, *мн.* кі́сты, кіст *і* кі́стаў, *ж.* (спец.). Пухліна, звычайна напоўненая вадкай масай. ‖ *прым.* **кісто́зны**, -ая, -ае (спец.).

**КІСЦЕ́НЬ**, -цяня́, *мн.* -цяні́, -цянёў, *м.* Даўнейшая зброя ў выглядзе кароткай палкі, на адным канцы якой падвешваўся металічны шар ці іншы цяжар для нанясення ўдараў, а на другім была пятля для надзявання на руку. *Разбойнік з кісцянём.*

**КІСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Частка рукі, якая складаецца з запясця, пясці і пальцаў. ‖ *прым.* **кі́сцевы**, -ая, -ае (спец.). *Кісцевае раненне.*

**КІСЯЯ́**, -і́, *ж.* Празрыстая тонкая тканіна. ‖ *прым.* **кісе́йны**, -ая, -ае. *Кісейная сукенка.*

**КІТ**[1], -а́, *М* кіце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Вялікая марская млекакормячая жывёліна, знешне падобная на рыбу. *Зубатыя кіты.* **2.** часцей *мн., перан.* Пра чалавека, які мае выключна важнае значэнне ў якой-н. сферы дзейнасці. *Кіты навукі. Кіты сучаснай касманаўтыкі.* ‖ *прым.* **кіто́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *К. вус.*

**КІТ**[2], -у, *М* кіце, *м.* Замазка для акон.

**КІТА́БЫ**, -аў, *адз.* кіта́б, -а, *м.* Кнігі, напісаныя ў 16 ст. на беларускай мове арабскім пісьмом. ‖ *прым.* **кіта́бны**, -ая, -ае.

**КІТАБО́ЕЦ**, -бо́йца, *мн.* -бо́йцы, -бо́йцаў, *м.* Судна для кітабойнага промыслу.

**КІТАБО́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Марак, які займаецца промыслам кітоў.

**КІТАБО́ЙНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з промыслам кітоў. *Кітабойная флатылія. К. промысел.*

**КІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што.* Замазваць кітам. ‖ *зак.* **закітава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны *і* **пакітава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *наз.* **кітава́нне**, -я, *н. і* **кіто́ўка**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *ж.*

**КІТАІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па кітаістыцы. ‖ *ж.* **кітаі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**КІТАІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Сукупнасць навук аб кітайскай культуры, гісторыі, літаратуры, мове.

**КІТА́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -та́ец, -та́йца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Кітая. ‖ *ж.* **кітая́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **кіта́йскі**, -ая, -ае.

**КІТАЛО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *кітабойны.*

**КІТАЯ́НКА** *гл.* кітайцы.

**КІТО́ВЫ** *гл.* кіт[1].

**КІТО́ЎКА** *гл.* кітаваць.

**КІЎ**, кі́ва, *мн.* кі́вы́, ківо́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *ківок. Не баішся ківа, пабаішся кія* (прымаўка).

**КІЎНУ́ЦЦА** *гл.* ківацца.

**КІЎНУ́ЦЬ** *гл.* ківаць.

**КІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Форменная аднабортная куртка са стаячым каўняром. ‖ *прым.* **кі́цельны**, -ая, -ае.

**КІШАЧНАДЫХА́ЛЬНЫЯ**, -ых. Клас марскіх жывёл з чэрвепадобным целам; распаўсюджаны ў цёплых морах, жывуць на дне, харчуюцца раслліннымі і жывёльнымі астанкамі.

**КІШАЧНАПО́ЛАСЦЕВЫЯ**, -ых. Назва аднаго з найбольш прымітыўных тыпаў мнагаклетачных беспазваночных жывёлін, у якіх поласць выконвае функцыі кішэчніка (медузы, паліпы і інш.).

**КІ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Эластычная трубка — частка органаў стрававання ў чалавека, жывёлін. *Тонкая к.* **2.** Гумавая або брызентавая трубка для падачы вады (разм.). *Пажарная к.* ◊ **Кішка тонка (тонкая)** *у каго* (разм.) — не хапае сіл, сродкаў і пад., каб зрабіць што-н. **Кішкі марш іграюць** (разм., жарт.) — пра моцнае адчуванне голаду. ‖ *прым.* **кі́шачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КІШЛА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Паселішча вясковага тыпу ў Сярэдняй Азіі. ‖ *прым.* **кішла́чны**, -ая, -ае.

**КІШМА́**, *прысл.* У выразе: **кішма кішэць** (разм.) — пра суцэльную масу: кішэць.

**КІШМІ́Ш**, -у, *м.* Гатунак салодкага вінаграду без костачак, а таксама разынкі з гэтага вінаграду. ‖ *прым.* **кішмі́шны**, -ая, -ае.

**КІШЭ́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Кішэнны злодзей. *Нечакана злавілі кішэнніка.*

**КІШЭ́НЬ** *і* **КІШЭ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Частка адзення (штаноў, паліто, пінжака) у форме прышытага або ўшытага мяшочка для дробных рэчаў. *Сукенка з кішэнямі. Ушыць кішэні.* **2.** Асобнае аддзяленне ў партфелі, чамадане і пад. *К. у гаспадарчай сумцы.* **3.** Паглыбленне, выемка (спец.). *К. тоўстай кішкі.* ◊ **Біць па кішэні** — уводзіць у выдаткі. **За словам у кішэнь не лазіць** — быць знаходлівым, дасціпным у размовах. **Класці сабе ў кішэнь** — прысвойваць чужыя грошы. **Набіць кішэнь** — нажыцца. **Не па кішэні** *каму* — надта дарага. **Пустыя кішэні** *у каго* — няма грошай. ‖ *памянш.* **кішэ́нька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **кішэ́нны**, -ая, -ае. *Кішэнныя грошы. Кішэнныя расходы. К. злодзей.*

**КІШЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шы́ць, *незак.* **1.** Мітусліва рухацца ў розных напрамках (пра вялікую колькасць каго-н.). *Мільёны пчол кішаць на канюшыне.* **2.** *кім.* Быць перапоўненым мноствам жывых рухавых істот. *Базарная плошча кішэла народам.*

**КІШЭ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Частка стрававальнай сістэмы чалавека і жывёл, якая пачынаецца за страўнікам і заканчваецца прамой кішкай; сукупнасць кішак.

**КІЯСКЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прадавец у кіёску. ‖ *ж.* **кіяскёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.).

**КЛАА́КА**, -і, *ДМ* клаа́цы, *мн.* -і, клаа́к, *ж.* **1.** Падземны канал для сцёку нечыстот. **2.** *перан.* Пра амаральнае, разбэшчанае асяроддзе (кніжн.). **3.** Вывадная адтуліна, агульная для кішэчніка і мочапалавых органаў (у земнаводных, паўзуноў, птушак, некаторых рыб і аднапраходных млекакормячых; спец.). ‖ *прым.* **клаака́льны**, -ая, -ае (да 3 знач.) *і* **клаа́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КЛАБУ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Высокі галаўны ўбор з пакрывалам, які носяць праваслаўныя манахі.

**КЛАВЕСІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Даўнейшы клавішна-струнны шчыпковы музычны інструмент, папярэднік фартэпіяна. ‖ *прым.* **клавесі́нны**, -ая, -ае.

**КЛАВІКО́РДЫ**, -аў. Даўнейшы клавішна-струнны ўдарны музычны інструмент. ‖ *прым.* **клавіко́рдны**, -ая, -ае.

**КЛА́ВІШ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м. і* **КЛА́ВІША**, -ы, *мн.* -ы, -віш, *ж.* **1.** Пласцінка ў музычным інструменце (фартэпіяна, баяне і інш.), якую націскаюць пальцам для атрымання гуку. *Клавішы раяля.* **2.** Наканечнік рычажка ў розных механізмах, які прыводзіцца ў рух пальцамі. *Клавішы камп'ютарнай клавіятуры.* ‖ *прым.* **кла́вішны**, -ая, -ае. *Клавішныя інструменты.*

**КЛАВІЯТУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Сістэма клавішаў. *К. раяля.* **2.** Прыстасаванне, якое дазваляе ўводзіць інфармацыю ў камп'ютар. *Камп'ютарная к.* ‖ *прым.* **клавіятурны**, -ая, -ае.

**КЛАДАЎШЧЫ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Работнік склада. ‖ *ж.* **кладаўшчы́ца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **кладаўшчы́цкі**, -ая, -ае.

**КЛА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** *гл.* класці. **2.** Частка якой-н. пабудовы — тое, што зложана з цэглы, каменю (спец.). *Старажытная к.* **3.** Дошка, жэрдкі або некалькі пален, прыстасаваныя для пераходу цераз рэчку, канаву, гразкае месца і пад. **5.** Невялікі драўляны памост на беразе рэчкі для паласкання бялізны, чэрпання вады. **6.** Адкладванне яец насякомымі, птушкамі.

**КЛАДО́ЎКА**, -і, *ДМ* -до́ўцы, *мн.* -і, -до́вак, *ж.* Памяшканне для захавання прадуктаў харчавання, садавіны, гародніны і пад.

**КЛАК**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Тое, што і *пыж.* ‖ *прым.* **клако́вы**, -ая, -ае.

**КЛАКЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, наняты для апладзіравання артыстам або іх асвістання, каб зрабіць уражанне поспеху або правалу спектакля.

**КЛА́КСАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ранейшая назва прыстасавання для падачы гукавога сігналу ў аўтамабілі, матацыкле і інш., а таксама сам сігнал. *Націснуць на к.*

**КЛАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Род, радавая абшчына [першапачаткова ў кельцкіх народаў] (спец.). **2.** *перан.* Адасобленая групоўка людзей, якія лічаць сябе лепшымі, прывілеяванымі ў якіх-н. адносінах. ‖ *прым.* **кла́навы**, -ая, -ае. *Кланавая абмежаванасць.*

**КЛАНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; *зак. і незак., каго-што* (спец.). Ажыццявіць (ажыццяўляць) біялагічнае капіраванне метадам геннай інжынерыі. *К. расліны.* ‖ *наз.* **кланіраванне**, -я, *н.*

**КЛА́НЯЦЦА**, -яюся, -яешся, -яецца; *незак.* **1.** *каму-чаму.* Рабіць паклоны ў знак прывітання, павагі, удзячнасці. *К. бацькоўскаму дому.* **2.** *каму.* У пісьме або праз каго-н. перадаваць прывітанне. *Кланяйся ад майго імя ўсім родным.* **3.** *перан., каму і перад кім.* Звяртацца з просьбай, уніжана аб чым-н. прасіць (разм.). *Кожнаму бюракрату прыходзіцца к.* ‖ *зак.* **пакланíцца**, -ланю́ся, -ло́нішся, -ло́ніцца.

**КЛА́ПАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дэталь у кампрэсарах, рухавіках унутранага згарання і інш., якая закрывае праход пары, газу або вадкасці. *Засцерагальны к.* **2.** Частка полага органа ў выглядзе складкі ў сэрцы, якая не дае рухацца крыві ў адваротным напрамку. *Сардэчны к.* **3.** Нашыўка з куска матэрыі, якая прыкрывае кішэню або шво на адзенні. ‖ *прым.* **кла́панны**, -ая, -ае.

**КЛАПАТА́ЦЬ**, -пачу́, -по́чаш, -по́ча; -пачы́; *незак.* (разм.). Вельмі старанна, настойліва і рупліва займацца чым-н. *К. каля стала.* ‖ *зак.* **паклапата́ць**, -пачу́, -по́чаш, -по́ча; -пачы́.

**КЛАПАТЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Уважлівы, старанны. *К. гаспадар.* **2.** Які патрабуе клопатаў, турбот. *Клапатлівая справа.* ‖ *наз.* **клапатлівасць**, -і, *ж.*

**КЛАПАТУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Клапатлівы чалавек. ‖ *ж.* **клапату́ха**, -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х.

**КЛАПАЦІ́ЦЦА**, -пачу́ся, -по́цішся, -по́ціцца; *незак.* **1.** *па кім-чым, каля каго-чаго.* Старанна і дбайна займацца чым-н.; працаваць над чым-н.; працаваць над чым-н. *К. па справе. К. каля гаспадаркі.* **2.** *без дап. і з дадан.* Непакоіцца, турбавацца з выпадку чаго-н. *Гаспадыня пачала к., дзе каго пасадзіць.* **3.** *аб кім-чым і пра каго-што.* Праяўляць клопат аб кім-, чым-н. *К. пра ўнукаў.* ‖ *зак.* **паклапаці́цца**, -пачу́ся, -по́цішся; -по́ціцеся.

**КЛАПІ́НЫ** *гл.* клоп.

**КЛАПО́ТНЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *клапатлівы.* ‖ *наз.* **клапо́тнасць**, -і, *ж.*

**КЛАПО́ЎНІК**, -у, *м.* Расліна сямейства крыжакветных з непрыемным пахам, ужыв. ў народнай медыцыне як сродак ад клапоў.

**КЛАРНЕ́Т**, -а, *М* -не́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Драўляны духавы музычны інструмент у выглядзе трубкі з клапанамі і невялікім раструбам на другім канцы. ‖ *прым.* **кларне́тны**, -ая, -ае.

**КЛАРНЕТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на кларнеце.

**КЛАС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У навуковых і іншых класіфікацыях: сукупнасць прадметаў, з'яў, аб'яднаных на аснове якіх-н. агульных якасцей; катэгорыя, разрад, падраздзяленне. *Назвы класаў раслін у батаніцы. К. паўзуноў. К. мінаносцаў.* **2.** Вялікая група людзей, аб'яднаных аднолькавымі адносінамі да сродкаў вытворчасці, да размеркавання грамадскага багацця і агульнасцю інтарэсаў. *Рабочы к.* **3.** Падраздзяленне вучняў пачатковай і сярэдняй школы, якое адпавядае году навучання. *Шосты к.* **4.** Падраздзяленне вучняў мастацкай або іншай спецшколы, якія вывучаюць пэўны прадмет. *К. цымбалаў. К. жывапісу.* **5.** Памяшканне ў школе, дзе займаюцца вучні. *Рамонт класа.* **6.** Група вучняў, якія вучацца сумесна. *Дружны к.* **7.** Мера якасці, ступень, узровень чаго-н.; кваліфікацыя. *Спецыяліст высокага класа. Паказаць нізкі к. гульні. Лётчык першага класа.* ‖ *прым.* **кла́савы**, -ая, -ае (да 2 знач.) і **кла́сны**, -ая, -ае (да 3—6 знач.). *Класавае грамадства. Класны кіраўнік. Класны пакой. Класная дысцыпліна.*

**КЛА́САВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* клас. **2.** Які ўласцівы, адпавядае ідэалогіі якога-н. грамадскага класа. *Класавая палітыка. К. падыход.* ‖ *наз.* **кла́савасць**, -і, *ж.*

**КЛА́СІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Выдатны, агульнапрызнаны дзеяч навукі, мастацтва, літаратуры. *Класікі беларускай літаратуры.* **2.** Прадстаўнік класіцызму ў мастацтве. **3.** Спецыяліст у галіне класічнай філалогіі (старажытнагрэчаская і лацінская мовы і літаратуры).

**КЛА́СІКА**, -і, *ДМ* -сіцы, *ж., зб.* Узорныя, агульнапрызнаныя творы літаратуры і мастацтва, якія з'яўляюцца каштоўнасцю для нацыянальнай і сусветнай культуры. *Выданне класікі.*

**КЛАСІФІКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак. і незак., каго-што.* Размеркаваць (размяркоўваць) па групах, разрадах, класах і пад. па характэрных прыкметах або якасцях. ‖ таксама *зак.* **раскласіфікава́ць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны. ‖ *наз.* **класіфікава́нне**, -я, *н. і* **класіфіка́цыя**, -і, *ж.*

**КЛАСІФІКА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* класіфікаваць. **2.** Сістэма, па якой што-н. раскласіфікавана. *К. навук. К. мінералаў. К. раслін.* ‖ *прым.* **класіфікацы́йны**, -ая, -ае.

**КЛАСІЦЫ́ЗМ**, -у, *м.* Стыль і кірунак у літаратуры і мастацтве 17 — пачатку 19 ст., заснаваны на перайманні антычных узораў і звязаны з сістэмай строгіх правіл у перадачы рэчаіснасці. *Каноны класіцызму.* ‖ *прым.* **класі́чны**, -ая, -ае. *К. жывапіс.*

**КЛАСІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* класіцызм. **2.** Які з'яўляецца класікам (у 1 знач.); створаны класікам, класікамі. *Беларускі к. пісьменнік. Руская класічная літаратура.*

3. Які мае адносіны да старажытнай грэка-рымскай культуры; антычны. *Класічная трагедыя. Класічныя мовы.* **4.** Звязаны з вывучэннем антычных моў і літаратур. *Класічная філалогія.* **5.** Тыповы, характэрны. *К. прыклад.*

**КЛА́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* клас. **2.** *у знач. наз.* **кла́сны**, -ага, *м.;* **кла́сная**, -ай, *ж.* Класны кіраўнік (разм.). **3.** Які мае пэўны клас, разрад (пра судна і г.д.; спец.). **4.** Які мае высокую ступень чаго-н.; які паказвае клас (у 7 знач.). *К. сталявар. К. спартсмен. Класная гульня.*

**КЛА́СЦІ**, кладу́, кладзе́ш, кладзе́; кладзём, кладзяце́, кладу́ць; клаў, кла́ла; кладзі́; *незак.* **1.** *каго-што.* Надаваць ляжачае становішча каму-, чаму-н. або змяшчаць куды-н. у такім становішчы. *К. дзіця ў калыску.* **2.** Змяшчаць, засоўваць куды-н. *К. рэчы ў чамадан.* **3.** Адпраўляць на лячэнне, змяшчаць (у клініку, шпіталь і пад.). *К. хворага ў бальніцу.* **4.** *што.* Накладваць, наносіць на паверхню чаго-н. *К. фарбу на сцены. К. павязку на рану.* **5.** *што.* Накладваць (страву, корм); дадаваць унутр чаго-н. *К. кашу ў талеркі. К. прыправу ў страву.* **6.** *што.* Рабіць адбітак на чым-н. *К. штамп.* **7.** *што.* Узводзіць, будаваць. *К. сцены з цэглы.* **8.** *што.* Рабіць, пракладваць, укладваць. *К. падлогу. К. мост.* **9.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Адкладваць (яйцы) для захавання патомства (пра насякомых). *К. лічынкі.* **10.** *перан., што.* Аддаваць, траціць. *К. сілы на будаванне хаты.* ◊ **Класці галаву (жыццё)** *за каго-што* — паміраць, аддаваць жыццё за каго-, што-н.; ахвяроўваць сабой. ‖ *зак.* **пакла́сці**, -кладу́, -кладзе́ш, -кладзе́; -кладзём, -кладзяце́, -кладу́ць; -кла́ў, -ла́ла; -кладзі́, **палажы́ць**, -лажу́, -ло́жыш, -ло́жыць; -ло́жаны *і* **скла́сці**, складу́, складзе́ш, складзе́; складзём, складзяце́, складу́ць; склаў, -ла́ла, складзі́; скла́дзены (да 7 знач.). ‖ *наз.* **кла́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 7 знач.).

**КЛА́СЦІСЯ**, кладу́ся, кладзе́шся, кладзе́цца; кладзёмся, кладзяце́ся, кладу́цца; кла́ўся, кла́лася; кладзі́ся; *незак.* **1.** Прымаць ляжачае становішча. *К. на ложак.* **2.** Укладвацца, размяшчацца для сну, адпачынку. *К. адпачыць.* **3.** Адпраўляцца на лячэнне. *К. ў шпіталь.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пакрываць, засцілаць сабою што-н., распаўсюджваючыся па паверхні. *Туман клаўся ў нізіне. Снег кладзецца на палі.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Браць які-н. напрамак (пра самалёт, карабель). **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Добра паддавацца кладцы. *Цэгла добра кладзецца ў сцяну.* **7.** *перан.* Свабодна, лёгка выкладацца, выказвацца (пра думкі, словы і пад.). *Фразы лёгка кладуцца на паперу.* **8.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., на каго-што.* Станавіцца чыім-н. доўгам, абавязкам, заняткам і пад. *Цяпер усе клопаты па гаспадарцы кладуцца на матчыны плечы.* ‖ *зак.* **пакла́сціся**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -кладзе́цца (да 1—4 знач.).

**КЛАЎНА́ДА**, -ы, *М* -дзе, *ж.* **1.** Жанр цыркавога мастацтва, заснаваны на буфанадзе і гратэску. 2. Частка цыркавога спектакля — клоўнская сцэнка. ‖ *прым.* **клаўна́дны**, -ая, -ае.

**КЛЕ́ІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., кле́іцца; *незак.* **1.** Рабіцца ліпкім, клейкім. *Ад смалы пальцы клеяцца.* **2.** Паддавацца склейванню. *Папера добра клеіцца.* **3.** *перан.* (звычайна з адмоўем). Паспяхова развівацца, атрымлівацца (разм.). *З музыкай у яго не клеіцца.*

**КЛЕ́ІЦЬ**, кле́ю, кле́іш, кле́іць; кле́ены; *незак., што.* Рабіць што-н., змацоўваючы пры дапамозе клею. *К. паперу.* ‖ *зак.* **скле́іць**, склею, скле́іш, скле́іць; скле́ены. ‖ *наз.* **кле́йка**, -і, *ДМ* кле́йцы, *ж. і* **кле́енне**, -я, *н.; прым.* **кле́ільны**, -ая, -ае.

**КЛЕЙ**, -ю, *мн.* кляі́, кляёў, *м.* Ліпкае рэчыва для трывалага змацавання (склейвання) чаго-н. *Сталярны к.* ‖ *прым.* **кляявы́**, -а́я, -óе. *Клеявая фарба.*

**КЛЕЙКАВІ́НА**, -ы, *ж.* Бялковае рэчыва, якое знаходзіцца ў зерні пшаніцы. ‖ *прым.* **клейкаві́нны**, -ая, -ае.

**КЛЕ́ЙКІ**, -ая, -ае. Які склейвае, клеіцца; ліпкі. *К. лісток. Клейкія рукі.* ‖ *наз.* **кле́йкасць**, -і, *ж.*

**КЛЕЙМАВА́ЦЬ**, кляйму́ю, кляйму́еш, кляйму́е; кляйму́й; клеймава́ны; *незак., каго-што.* **1.** Ставіць кляймо на каго-, што-н. *К. жывёлу. К. тканіну.* **2.** *перан.* Сурова асуджаць; ганьбіць. *К. падпальшчыкаў вайны. К. гультаёў.* ‖ *зак.* **заклеймава́ць**, -кляйму́ю, -кляйму́еш, -кляйму́е; -кляйму́й; -клеймава́ны. ‖ *наз.* **клеймава́нне**, -я, *н.*

**КЛЕ́ЙСТАР**, -у, *м.* Клей з мукі або крухмалу. *Зварыць к.* ‖ *прым.* **кле́йстарны**, -ая, -ае.

**КЛЕКАТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., кляко́ча; *незак.* **1.** Ствараць клёкат, крычаць падобна некаторым птушкам. *На ліпе клякоча бусел.* **2.** Бурліць, шумна кіпець. *У трубах клекатала вада.* **3.** *перан.* Бурна праяўляцца (пра пачуцці). *На душы ў яго клекаталі гнеў і абурэнне* ‖ *наз.* **клеката́нне**, -я, *н.*

**КЛЕ́НЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* **1.** Станавіцца на калені. **2.** *перан.* Настойліва прасіць, выпрошваць што-н. *Настойліва ўгаворваць, к. застацца.* ‖ *зак.* **укле́нчыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны (да 1 знач.) *і* **вы́кленчыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны (да 2 знач.). *Укленчыць перад абразамі. Выкленчыць у маці грошай.* ‖ *наз.* **кле́нчанне**, -я, *н.*

**КЛЕПТАМА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Чалавек, які хварэе на клептаманію. ‖ *ж.* **клептама́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**КЛЕПТАМА́НІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Псіхічнае захворванне, якое заключаецца ў непадольным імкненні да крадзяжу.

**КЛЕРК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Канторскі служачы ў некаторых краінах.

**КЛЕРЫКА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік клерыкалізму; член клерыкальнай партыі.

**КЛЕРЫКАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Ідэалагічная і палітычная плынь, якая імкнецца ўзмацніць уплыў царквы на грамадска-палітычнае і культурнае жыццё. *Прыхільнікі клерыкалізму.* ‖ *прым.* **клерыка́льны**, -ая, -ае.

**КЛЕ́ТКА**[1], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Памяшканне з металічных або драўляных прутоў для птушак і жывёлін. *К. для папугаяў.* **2.** Спосаб складання некаторых матэрыялаў (дроў, дошак, цэглы і пад.) у выглядзе чатырохвугольніка. *Скласці дошкі ў клетку.* **3.** Квадрат, усякі чатырохвугольнік, начэрчаны на паверхні чаго-н. *Клеткі шахматнай дошкі. Сшыткі ў клетку.* ○ **Грудная клетка** — частка тулава, якая складаецца з рэбраў, грудзіны, пазванкоў і змяшчае ў сабе сэрца, лёгкія, стрававод. ‖ *памянш.* **кле́тачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **кле́тачны**, -ая, -ае.

**КЛЕ́ТКА**[2], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Элементарная адзінка будовы жывога арганізма, якая складаецца з ядра, пратаплазмы і абалонкі. *Нервовая к.* ‖ *памянш.* **кле́тачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **кле́тачны**, -ая, -ае. *Клетачнае ядро.*

**КЛЕЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Традыцыйная сялянская будыніна для захавання збажыны, маёмасці; свіран. **2.** Шахтавы ліфт. **3.** Асноўная частка пракатнага стана.

**КЛЕШЧ**, кляшча́, *мн.* кляшчы́, кляшчо́ў, *м.* Невялікая членістаногая жывёліна атрада павукападобных, якая паразітуе на целе чалавека, жывёлы, а таксама на раслінах. ‖ *прым.* **клешчавы́**, -а́я, -óе.

**КЛЕШЧАВІ́НА**, -ы, *ж.* Алейная расліна сямейства малачаевых, з насення якой атрымліваюць рыцыну. ‖ *прым.* **клешчаві́нны**, -ая, -ае.

**КЛЕ́ШЧЫ**, -аў. **1.** Металічныя шчыпцы. *Кавальскія к.* **2.** Драўляная частка хамута, якая складаецца з дзвюх кляшчын. **3.** У ваеннай справе — акружэнне ворага з двух бакоў. *Узяць у к.*

**КЛЕШЧЫНА́**, -ы́, *мн.* кляшчы́ны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) клешчыны́, кляшчы́н, *ж.* Адна з дзвюх драўляных частак хамута, якія сцягваюцца пад шыяй каня супоняй.

**КЛЁК**, -у, *м.* (разм.). **1.** Розум, развага. *У гэтага чалавека к. ёсць.* **2.** Жыццёвая сіла; сокі. *Нельга ж цягнуць з чалавека апошні к.* ◊ **Не мець клёку ў галаве** (разм., пагард.) — пра чалавека, у якога няма розуму.

**КЛЁКАТ**, -у, *М* -каце, *м.* **1.** Перарывістыя крыкі, характэрныя для некаторых птушак. *К. бусла.* **2.** Гукі, якія ўтвараюцца пры кіпенні, бульканні вадкасцей. *К. вады ў трубах.*

**КЛЁН**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а, *мн.* клёны, -аў *і* кляны́, -óў. Дрэва сямейства кляновых з шырокімі, у большасці выпадкаў фігурнымі лістамі. **2.** -у. Драўніна гэтай расліны. *Начоўкі з клёну.* ‖ *памянш.* **клёнік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **кляно́вы**, -ая, -ае.

**КЛЁННІК**, -у, *м., зб.* Зараснік клёну; кляновы лес.

**КЛЁПКА**[1], -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* Кожная асобная дошчачка для бакавых сценак бочкі і пад. *Клёпкі ў бочцы рассохліся.* ◊ **Клёпкі ў галаве не хапае (не стае)** (разм., пагард.) — пра дурнаватага, з дзівацтвамі чалавека. ‖ *прым.* **клёпачны**, -ая, -ае.

**КЛЁПКА**[2] *гл.* кляпаць.

**КЛЁЦКІ**, -цак, *адз.* клёцка, -і, *ДМ* -ццы, *ж.* Галушкі з мучнога цеста або дранай бульбы, зваранья ў вадзе або малацэ.

**КЛЁШ**, -а, *м.*, таксама *прым.*, *нязм.* Асаблівы крой спадніцы, штаноў, расшыраны ўнізе. *Шырокі к. Спадніца к.* ‖ *прым.* **клёшны**, -ая, -ае.

**КЛІЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пастаянны наведвальнік, пакупнік або заказчык. *Надзейны к. фірмы.* **2.** Асоба, якая карыстаецца паслугамі адваката, натарыуса, крэдытнай установы і пад. *К. банка.* ‖ *ж.* **кліе́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **кліе́нцкі**, -ая, -ае.

**КЛІЕНТУ́РА**, -ы, *ж.*, *зб.* Кліенты. *Пастаянная к. ў цырульні.* ‖ *прым.* **кліенту́рны**, -ая, -ае.

**КЛІ́ЗМА**, -ы, *мн.* -ы, клізм *і* -аў, *ж.* **1.** Увядзенне якой-н. вадкасці ў кішэчнік праз прамую кішку з мэтай лячэння або дыягностыкі. *Паставіць клізму.* **2.** Прыстасаванне для такога ўвядзення вадкасці. *Рызінавая к.* ‖ *прым.* **клі́зменны**, -ая, -ае.

**КЛІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Кліч, вокліч (высок.). *Радасны к. Урачысты к.* **2.** Крык некаторых дзікіх птушак. *Лебядзіныя клікі.*

**КЛІ́КА**, -і, *ДМ* клі́цы, *мн.* -і, клік, *ж.* (пагард.). Група, шайка людзей, якія займаюцца непрыгожымі, непрыстойнымі справамі. *К. інтрыганаў.*

**КЛІ́КАЦЬ**, клі́чу, клі́чаш, клі́ча; кліч; *незак.* **1.** *каго (што).* Голасна зваць, прасіць прыйсці, адгукнуцца. *К. на ратунак. К. бабулю.* **2.** *каго (што).* Запрашаць з якой-н. мэтай. *К. на вяселле. К. на ўрачысты вечар.* **3.** *каго-што.* Заклікаць да якіх-н. дзеянняў. *К. народ на барацьбу.* **4.** *каго (што) кім* або (пры пытанні) *як.* Называць якім-н. імем, мянушкай (разм.). ‖ *зак.* **паклі́каць**, -лі́чу, -лі́чаш, -лі́ча; -лі́ч; -лі́каны (да 1 і 2 знач.). ‖ *аднакр.* **клі́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **клі́канне**, -я, *н.*

**КЛІКУ́НСТВА**, -а, *н.* Нервовае істэрычнае захворванне жанчын, якое выражаецца ў сутаргавых прыпадках і вішчанні. ‖ *прым.* **кліку́нскі**, -ая, -ае.

**КЛІКУ́ША**, -ы, *мн.* -ы, -кўш, *ж.* Жанчына, хворая на клікунства.

**КЛІ́МАКС**, -у, *м.* (спец.). Тое, што і *клімактэрый.*

**КЛІМАКТЭ́РЫЙ**, -ю, *м.* (спец.). Перыяд угасання функцый палавой сістэмы з набліжэннем старасці. ‖ *прым.* **клімактэ́рычны**, -ая, -ае. *К. перыяд.*

**КЛІ́МАТ**, -у, *М* -маце, *м.* **1.** Метэаралагічныя ўмовы, уласцівыя пэўнай мясцовасці ў залежнасці ад геаграфічных абставін. *Кантынентальны к.* **2.** *перан.* Становішча, умовы існавання чаго-н. *Міжнародны палітычны к. Здаровы к. у сям'і.* ‖ *прым.* **кліматы́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КЛІН**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Завостраны ўнізе і расшыраны ўверсе кусок дрэва або металу, якім расколваюць або заціскаюць што-н. *Дубовы к. Забіць к. у палена.* **2.** Вузкая трохвугольная ўстаўка ў сукенцы і іншым адзенні. *Уставіць к. у сарочку.* **3.** *перан.* Частка войск, якая, расколваючы фронт праціўніка, паглыбляецца ў яго размяшчэнне вузкім трохвугольнікам. **4.** *чаго* або *які.* Пра ўсё, што мае трохвугольную, завостраную з аднаго боку форму. *Жураўліны к.* **5.** Частка зямельных угоддзяў, якая вылучаецца па якой-н. прымеце (па відзе пасеваў, мясцовасці і пад.; спец.). *Яравы к. Азімы к. К. сенакосу.* ◊ **Забіць (загнаць) клін** — раз'яднаць, зрабіць варожым. **Куды ні кінь — усюды клін** — за што ні вазьміся, чаго-н. не хапае, усё не ладзіцца. **Свет клінам (не) сышоўся** *на кім-чым* (разм.) — хто-н. або што-н. не з'яўляецца адзіным, ёсць і іншыя. ‖ *памянш.* **кліно́к**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.* (да 1, 2, 4 і 5 знач.). ‖ *прым.* **клінавы́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.; спец.). *Клінавое злучэнне.*

**КЛІНАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *клінападобны.*

**КЛІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *незак., што* (разм.). Забіваць клін; заклін覆оўваць.

**КЛІНАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Які мае форму кліна. *Клінападобная барада.*

**КЛІ́НАПІС**, -у, *м.* Спосаб пісьма старажытных народаў Пярэдняй Азіі, клінападобныя знакі якога наносілі на гліну або камень. *Вавілонскі к.* ‖ *прым.* **клінапі́сны**, -ая, -ае. *К. надпіс.*

**КЛІ́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *мн.* -і, -нік, *ж.* Стацыянарная лячэбная ўстанова, у якой лячэнне хворых спалучаецца з навукова-даследчай і вучэбнай работай. ‖ *прым.* **клі́нічны**, -ая, -ае.

**КЛІНІЦЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач, які працуе ў клініцы. ‖ *ж.* **клініцы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**КЛІНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* клініка. **2.** Які мае адносіны да лячэбнага ўздзеяння, які патрабуе або паддаецца лячэнню (спец.). *К. выпадак.*

**КЛІ́НКЕР**, -у, *м.* (спец.). Вельмі моцны вогнетрывалы і воданепранікальны штучны камень, а таксама абпаленая да спякання цэментная сыравіна. ‖ *прым.* **клі́нкерны**, -ая, -ае.

**КЛІНО́К**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.* **1.** *гл.* клін. **2.** Вострая частка халоднай зброі; лязо. **3.** Трохвугольная торбачка для прыгатавання сыру. ‖ *прым.* **клінко́вы**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.). *К. сыр.*

**КЛІП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *відэакліп.*

**КЛІ́ПЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Быстраходнае паруснае або парусна-паравое судна. ‖ *прым.* **клі́перны**, -ая, -ае.

**КЛІ́ПСЫ**, -аў, *адз.* кліпс, -а, *м. і* клі́пса, -ы, *ж.* Заціскныя завушніцы. ‖ *прым.* **клі́псавы**, -ая, -ае.

**КЛІР**, -а, *м.* **1.** У хрысціянскай царкве: сукупнасць свяшчэннаслужыцеляў і царкоўнаслужыцеляў аднаго храма. **2.** Царкоўны хор.

**КЛІ́РАС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Месца для пеўчых у царкве на ўзвышэнні перад алтаром, з левага і правага боку Царскіх дзвярэй. *Спяваць на клірасе.* ‖ *прым.* **клі́расны**, -ая, -ае.

**КЛІЧ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (высок.). Заклік да чаго-н. *«Усе на ўборку ўраджаю!» — пранёсся к.*

**КЛІ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Імя, якое даюць свойскай жывёле. **2.** Мянушка чалавека (для жарту, насмешкі, у канспіратыўных мэтах). *Крыўдная к. К. рэвалюцыянера.*

**КЛІ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Знак прыпынку (!), які ставіцца ў канцы клічнага сказа.

**КЛІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выражае заклік, загад і розныя пачуцці. *К. сказ. Клічная інтанацыя.* **2.** Які выражае зварот да асобы, прадмета (пра форму, склон назоўніка, напр.: *браце, дружа, куме*). *К. склон.*

**КЛІШЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.*, *што* (спец.). Вырабіць (вырабляць) клішэ. *К. здымак.* ‖ *наз.* **клішы́раванне**, -я, *н.* *і* **клішыро́ўка**,-і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**КЛІШЭ́**, *нескл.*, *н.* (спец.). **1.** Рэльефны рысунак, чарцёж і пад. на метале, зробленыя для паліграфічнага ўзнаўлення ў друку. *Металічнае к.* **2.** Збіты выраз, фраза. *Гатовае к.*

**КЛОН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Генетычна аднароднае патомства расліны або жывёліны, якое ўтварылася шляхам бясполага, пераважна вегетатыўнага, размнажэння.

**КЛОП**, клапа́, *мн.* клапы́, клапо́ў, *м.* Насякомае-паразіт, якое корміцца кроўю чалавека і жывёл або сокам раслін. ‖ *прым.* **клапі́ны**, -ая, -ае.

**КЛО́ПАТ**, -у, *М* -паце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Неспакойная думка пра што-н. або дзейнасць па ажыццяўленні чаго-н. *К. пра вясеннія работы. Клопаты па добраўпарадкаванні горада. К. аб дабрабыце сям'і.* **2.** Увага да патрэб і запатрабаванняў каго-н. *К. пра жыхароў вёскі.* **3.** Неспакойны, трывожны стан; хваляванне. *К. ад сэрца не адступае. Не хочацца рабіць людзям клопату.*

**КЛОЎН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Цыркавы артыст-комік. ‖ *прым.* **кло́ўнскі**, -ая, -ае.

**КЛУБ**[1], -а, *мн.* клубы, -аў, *м.* **1.** Установа, грамадская арганізацыя культурна-асветнага, палітычнага, спартыўнага і іншага характару. *Сельскі к. Шахматны к.* **2.** Будынак, памяшканне для такой арганізацыі. *Сёння ў клубе цікавы канцэрт.* ‖ *прым.* **клубны**, -ая, -ае.

**КЛУБ**[2], -а́, *мн.* клубы́, -о́ў, *м.* Лятучая шарападобная маса пылу, дыму і пад. *Клубы пылу за аўтамабілем.*

**КЛУБ**[3], -а́, *мн.* клубы́, -о́ў, *м.* Верхняя частка бядра. *Выбіць нагу з клуба.*

**КЛУ́БЕНЬ**, -бня, *мн.* -бні, -бняў, *м.* Патоўшчаная мясістая частка сцябла або кораня расліны. *Клубні бульбы.* ‖ *прым.* **клу́бневы**, -ая, -ае. *Клубневыя расліны.*

**КЛУБІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -бі́цца; *незак.* Узнімацца клубамі[2]. *Пыл клубіцца пад капытамі.*

**КЛУБНІ́ЦЫ**, -ні́ц, *адз.* -ні́ца, -ы, *ж.* Шматгадовая травяністая расліна з салодкімі чырвонымі ягадамі, а таксама ягады гэтай расліны. ‖ *прым.* **клубні́чны**, -ая, -ае.

**КЛУБНІ́ЧНІК**, -у, *м., зб.* Травяністыя кусты клубніц.

**КЛУБНІ́ЧЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -чын, *ж.* Адна ягада клубніц; клубніца.

**КЛУБНЯПЛО́ДЫ**, -аў, *адз.* -ло́д, -а, *М* -дзе, *м.* Харчовыя, кармавыя і тэхнічныя расліны, якія ўтвараюць на падземных сцёблах клубні.

**КЛУБО́К**, -бка́, *мн.* -бкі́, -бко́ў, *м.* **1.** Зматаныя шарыкам ніткі, шпагат і пад. *К. пражы.* **2.** *перан.* Што-н. заблытанае, у чым цяжка разабрацца. *К. загадкавых супярэчнасцей.* **3.** Невялікі клуб[2], тое, што і *клуб*[2]. *Дым клубкамі слаўся па страсе.* ◊ **Клубок у горле** — пра пачуццё сутаргавага, хваравітага сціску ў горле. **Разматаць клубок** — разблытаць якую-н. складаную справу. ‖ *прым.* **клубко́вы**, -ая, -ае *і* **клубо́чны**, -ая, -ае.

**КЛУ́МАК** *гл.* клунак.

**КЛУ́МБА**, -ы, *мн.* -ы, клумб *і* -аў, *ж.* Градка для кветак у выглядзе якой-н. замкнутай фігуры. *Круглая к.* ‖ *прым.* **клу́мбавы**, -ая, -ае.

**КЛУ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў *і* **КЛУ́МАК**, -мка, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* Дробныя рэчы, звязаныя хусткай, абрусам, кавалкам матэрыі або складзеныя ў торбу. *Пагрузіць клункі на калёсы.* ‖ *памянш.* **клу́начак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў *і* **клу́мачак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.*

**КЛЫ́ГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Марудна ісці; клыпаць.

**КЛЫК**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Тое, што і *ікол.*

**КЛЫКА́СТЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *ікласты.* ‖ *наз.* **клыка́стасць**, -і, *н.*

**КЛЫ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Ісці марудна, накульгваючы, перавальваючыся з нагі на нагу.

**КЛЫШАНО́ГІ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *касалапы.* ‖ *наз.* **клышано́гасць**, -і, *ж.*

**КЛЮЧ**[1], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Металічная прылада для адмыкання і замыкання замка. *К. ад клеці.* **2.** Прылада для завінчвання і адвінчвання гаек, адкаркоўвання чаго-н., для заводкі чаго-н. і пад. *Гаечны к. К. для механічнай цацкі.* **3.** *перан.* Тое, што служыць для разгадкі, разумення каго-, чаго-н., для аваладання чым-н. *К. шыфру.* ‖ *памянш.* **клю́чык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **ключавы́**, -а́я, -о́е.

**КЛЮЧ**[2], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (спец.). Знак у пачатку нотнага радка, які вызначае вышыню нот. *Басовы к. Скрыпічны к.*

**КЛЮЧ**[3], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Чарада птушак (гусей, жураўлёў і пад.) у палёце. *К. гусей узяў напрамак на поўдзень.*

**КЛЮЧ**[4], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (спец.). Верхні камень, якім заканчваецца арка, скляпенне. ‖ *прым.* **ключавы́**, -а́я, -о́е.

**КЛЮЧАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* ключ[1], ключ[4]. **2.** *перан.* Найбольш значны, важны ў ваенных ці эканамічных адносінах. *Ключавыя праблемы народнай гаспадаркі. Ключавыя пазіцыі войск.*

**КЛЮ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Слуга ў панскім маёнтку, у распараджэнні якога знаходзіліся прадукты харчавання і ключы ад месцаў іх захоўвання. ‖ *ж.* **клю́чніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**КЛЮ́ЧЫКІ**, -аў. Тое, што і *першацвет.*

**КЛЮЧЫ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -чы́ц, *ж.* Парная трубчастая косць плечавога пояса чалавека і хрыбетных жывёл, якая злучае лапатку з груднной косцю. ‖ *прым.* **ключы́чны**, -ая, -ае.

**КЛЮ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Спартыўны снарад у выглядзе палкі з загнутым канцом для гульні ў хакей, гольф. ‖ *прым.* **клю́шачны**, -ая, -ае.

**КЛЮ́ШНЯ**, -і, *мн.* -і, -шань *і* -шняў, *ж.* Канечная частка ножкі рака і ракападобных, якая нагадвае клешчы. ‖ *прым.* **клю́шневы**, -ая, -ае.

**КЛЯВЕ́Ц**, кляўца́, *мн.* кляўцы́, кляўцо́ў, *м.* Малаток са сплюснутым канцом для насякання млынавых камянёў, для кляпання кос.

**КЛЯЙМО́**, -а́, *мн.* клё́ймы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) кляймы́, клё́ймаў, *н.* **1.** Пячатка, знак, які ставяць, выпальваюць на кім-, чым-н. *К. на кані. К. на сукне.* **2.** *перан., чаго* або *якое.* Знак, сведчанне чаго-н. (звычайна ганебнага). *К. ганьбы.* **3.** Прылада, якой кляймуюць. ‖ *прым.* **кляймо́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КЛЯ́КСА**, -ы, *мн.* -ы, клякс *і* -аў, *м.* Чарнільная пляма. *Пасадзіў кляксу.*

**КЛЯ́МАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сагнутая пад вуглом жалезная скаба для змацавання драўляных частак пабудовы. *Узяць у клямары сцяну.* ‖ *прым.* **кля́марны**, -ая, -ае.

**КЛЯ́МКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* Прыстасаванне, з дапамогай якога зачыняюць і адчыняюць дзверы. ‖ *прым.* **кля́мачны**, -ая, -ае.

**КЛЯНІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́н, *ж.* (разм.). Драўніна клёну.

**КЛЯНО́ВІК**, -у, *м.* (разм.). Кляновы сок. *Частавалі нас кляновікам.*

**КЛЯНО́ВЫ** *гл.* клён.

**КЛЯПА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па кляпанні, па кляпальных работах. ‖ *ж.* **кляпа́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**КЛЯПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* кляплю́, клё́плеш, клё́пле; кляпа́ны; *незак., што.* **1.** Злучаць часткі чаго-н. пры дапамозе заклёпак. **2.** Ударамі малатка вастрыць лязо касы. ‖ *наз.* **кляпа́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.) *і* **клё́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (да 1 знач.).

**КЛЯ́СЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Альбом для марак. ‖ *прым.* **кля́серны**, -ая, -ае.

**КЛЯСЦІ́**, кляну́, клянé́ш, клянé́; клянём, кленяцé́, кляну́ць; кляў, кляла́, -ло́; кляні́; *незак., каго-што.* Пасылаць праклёны; праклінаць. ‖ *наз.* **кляцьба́**, -ы́, *ж.*

**КЛЯСЦІ́СЯ**, кляну́ся, клянé́шся, клянé́цца; клянёмся, кленяцé́ся, кляну́цца; кля́ўся, кляла́ся, -ло́ся; кляні́ся; *незак.* **1.** *чым* і *без дап.* Даваць клятву; урачыста абяцаць што-н.; прысягаць. *Клянёмся Радзіму аберагаць. К. ў вернасці сябрам.* **2.** Праклінаць каго-н. ‖ *зак.* **пакляслі́ся**, -кляну́ся, -клянé́шся, -клянé́цца; -клянёмся, -кленяцé́ся, -кляну́цца; пакля́ўся, -кляла́ся, -ло́ся; -кляні́ся.

**КЛЯ́ТВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Урачыстае абяцанне, запэўненне. *К. ў дружбе.* ‖ *прым.* **кля́твенны**, -ая, -ае.

**КЛЯТВАПАРУША́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто парушае клятву. ‖ *ж.* **клятвапаруша́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**КЛЯТВАПАРУШЭ́ННЕ**, -я, *н.* Парушэнне дадзенай клятвы.

**КЛЯТЧА́СТЫ**, -ая, -ае. Які мае ўзор, рысунак у клетку[1] (у 3 знач.). *Клятчастае кашнэ.*

**КЛЯТЧА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Арганічнае рэчыва, з якога складаецца абалонка клетак расліны. **2.** Рыхлая падскурная злучальная тканка ў арганізме чалавека і жывёлы. ‖ *прым.* **клятча́тачны**, -ая, -ае.

**КЛЯ́ЎЗА**, -ы, *мн.* -ы, кляўз *і* -аў, *ж.* **1.** Дробязная прыдзірлівая скарга; нагавор, паклёп (разм.). *Сорамна займацца кляўзамі.* **2.** Прыдзірлівы дробны судовы іск (уст.). ‖ *прым.* **кля́ўзны**, -ая, -ае.

**КЛЯ́ЎЗНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто займаецца кляўзамі. ‖ *ж.* **кля́ўзніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **кля́ўзніцкі**, -ая, -ае.

**КЛЯ́ЎЗНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Займацца кляўзамі; нагаворваць, паклёпнічаць. ‖ *зак.* **накля́ўзнічаць**, -аю, -аеш, -ае.

**КЛЯЦЬБА́**, -ы́, *ж.* **1.** *гл.* клясці. **2.** Словы лаянкі, якімі выказваюць пажаданне зла, няшчасця каму-н.; праклён.

**КЛЯ́ЧА**, -ы, *мн.* -ы, кляч *і* -аў, *ж.* (пагард.). Пра худога, заезджанага каня.

**КЛЯ́ШТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Каталіцкі манастыр. ‖ *прым.* **кля́штарны**, -ая, -ае.

**КМЕН**, -у, *м.* Травяністая расліна сямейства парасонавых, а таксама яе насенне, што скарыстоўваецца як прыправа. ‖ *прым.* **кме́навы**, -ая, -ае *і* **кме́нны**, -ая, -ае.

**КНЕХТ**, -а, *М* -хце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Тумба на палубе судна або на прыстані для замацавання троса, каната.

**КНІ́ГА**, -і, *ДМ* кні́зе, *мн.* -і, кніг, *ж.* **1.** Друкаванае (даўней таксама рукапіснае) выданне ў выглядзе пераплеценых разам аркушаў з якім-н. тэкстам і ілюстрацыямі. *К. вершаў. К. апавяданняў.* **2.** Сшытыя разам чыстыя або разлінееныя лісты паперы для якіх-н. запісаў. *К. запісаў актаў*

*грамадзянскага стану. К. водгукаў.* **3.** Адна з некалькіх вялікіх частак літаратурнага твора. *Раман у трох кнігах.* || *памянш.-ласк.* **кніжачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 і 2 знач.), **кніжка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* (да 1 і 2 знач.) *і* **кніжыца**, -ы, *мн.* -ы, -жыц, *ж.* (да 1 і 2 знач.; разм.). || *прым.* **кніжны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *К. кіёск. Кніжная выстава. Кніжная вокладка.*

**КНІГА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да кніг (у 1 знач.), напр.: *кнігавыдавец, кнігавыдавецтва, кнігавыдача, кнігагандаль.*

**КНІГАВЫДАВЕ́ЦТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Кніжнае выдавецтва. || *прым.* **кнігавыдаве́цкі**, -ая, -ае.

**КНІГАГА́НДАЛЬ**, -длю, *м.* Гандаль кнігамі. || *прым.* **кнігагандлёвы**, -ая, -ае. *Кнігагандлёвыя арганізацыі.*

**КНІГАДРУКАВА́ННЕ**, -я, *н.* Друкаванне і выданне кніг. || *прым.* **кнігадрукава́льны**, -ая, -ае.

**КНІГАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Навука аб кнізе і кніжнай справе, аб працэсах стварэння, распаўсюджвання і выкарыстання твораў пісьменнасці і друку ў грамадстве. || *прым.* **кнігазна́ўчы**, -ая, -ае.

**КНІГАЛЮ́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аматар і знавец кніг. || *прым.* **кнігалю́бскі**, -ая, -ае.

**КНІГАНО́ША**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -нош (гіст.). **1.** Прадавец кніг або бібліятэчны работнік, якія разносілі кнігі па дамах. **2.** Чалавек, які займаўся дастаўкай кніг праз мяжу нелегальным шляхам.

**КНІГА́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* Кніжны магазін.

**КНІГАСХО́ВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -вішч *і* -аў, *н.* **1.** Памяшканне для захоўвання кніг і іншых друкаваных выданняў у бібліятэцы, кніжным магазіне. **2.** Буйная грамадская бібліятэка.

**КНІ́ГАЎКА**, -і, *ДМ* -гаўцы, *мн.* -і, -гавак, *ж.* Птушка сямейства сяўцоў, якая жыве на балотах, сырых лугах. || *прым.* **кні́гаўчын**, -а, -ы.

**КНІ́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* **1.** *гл.* кніга. **2.** У складзе назвы некаторых дакументаў у выглядзе сшытых разам лісткоў з тэкстам і месцам для афіцыйных запісаў. *Працоўная к.* **3.** Асобны нумар тоўстага часопіса. *Сакавіцкая к. часопіса «Полымя».* **4.** Адзін з чатырох аддзелаў страўніка жвачных жывёл, слізістая абалонка якога ўтварае складкі, падобныя на лісты паўразгорнутай кнігі (спец.).

**КНІ́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Знавец і аматар кніг. *Заўзяты к.* **2.** Перапісчык або друкар; выдавец кніг (уст.). **3.** Пра адарванага ад жыцця чалавека, які кіруецца ў сваёй дзейнасці ведамі, набытымі з кніг (іран.). || *ж.* **кні́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 1 знач.).

**КНІ́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* кніга. **2.** Які апіраецца на веды з кніг, не падмацаваны жыццёвым вопытам. *Кніжныя веды.* **3.** Характэрны для пісьмовага літаратурнага тэксту, не ўласцівы жывой мове. *К. стыль.* || *наз.* **кні́жнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**КНІ́КСЕН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пачцівы паклон з прысяданнем перад старэйшым; рэверанс (у 1 знач.). *Зрабіць к.*

**КНО́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* **1.** Тонкі кароткі цвічок з шырокай плоскай плешкай, якім прымацоўваюць паперу, тканіну і пад. да чаго-н. цвёрдага. **2.** Невялікі акруглы выступ, які служыць для замыкання электрычнага ланцуга і прывядзення ў дзеянне розных механізмаў націсканнем на яго. *К. ліфта.* **3.** Металічная або пластмасавая засцежка, якая складаецца з дзвюх частак, што ўваходзяць адна ў адну. *Пальчаткі на кнопках.* **4.** Пра чалавека маленькага росту (разм., жарт.). ◊ **Націснуць на ўсе кнопкі** — выкарыстаць усе магчымасці для дасягнення чаго-н. || *памянш.-ласк.* **кно́пачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* || *прым.* **кно́пачны**, -ая, -ае (да 1—3 знач.).

**КНО́РАЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *кныр.*

**КНОТ**, -а, *М* кно́це, *мн.* кнаты́, -о́ў, *м.* Спецыяльная стужка або шнурок, якія служаць для гарэння ў газавай лямпе, свечцы і пад. || *прым.* **кно́тавы**, -ая, -ае.

**КНЫР**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Самец свінні.

**КНЯГІ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -гінь, *ж.* Жонка князя.

**КНЯЖНА́**, -ы́, *мн.* -ы́, -жо́н, *ж.* Тое, што і *князёўна.*

**КНЯ́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; *незак.* Правіць княствам. || *наз.* **кня́жанне**, -я, *н.*

**КНЯЗЁЎНА**, -ы, *мн.* -ы, -зёвен *і* -аў, *ж.* Незамужняя дачка князя.

**КНЯЗЬ**, -я, *мн.* князі́, -ёў, *м.* **1.** Правадыр войска і правіцель феадальнай манархічнай дзяржавы або асобнага ўдзельнага княства. *Полацкі к.* **2.** Тытул такіх асоб, якія перадаваўся ў спадчыну або прысвойваўся царом як узнагарода, а таксама асоба, якая мела такі тытул. || *пагард.* **князёк**, -зька́, *мн.* -зькі́, -зько́ў, *м.* || *прым.* **кня́жацкі**, -ая, -ае. *К. палац. К. тытул.*

**КНЯ́СТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Феадальнае ўладанне на чале з князем. *Пінскае к.* **2.** У складзе назвы некаторых сучасных дзяржаў. *К. Ліхтэнштэйн.*

**КО́БАЛЬТ**, -а, *М* -льце, *м.* Хімічны элемент, серабрыста-белы метал з чырванаватым адлівам. || *прым.* **ко́бальтавы**, -ая, -ае. *К. сплаў.*

**КО́БЗА**, -ы, *мн.* -ы, кобз *і* -аў, *ж.* Старадаўні ўкраінскі шчыпковы струнна- музычны інструмент.

**КО́БРА**, -ы, *мн.* -ы, кобр *і* -аў, *ж.* Вялікая ядавітая змяя сямейства аспідаў, якая пры небяспецы прымае своеасаблівую позу, падымаючы пярэднюю частку цела вертыкальна над зямлёй і расшыраючы шыю ў выглядзе дыска (пашырана ў Афрыцы, Азіі, Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыцы).

**КО́ВАНЫ** *гл.* каваны.

**КО́ВАЧНЫ** *гл.* каваць.

**КО́ВЫ**, -аў (паэт.). Тое, што і *аковы.*

**КОД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сістэма ўмоўных абазначэнняў, сігналаў, якія перадаюць інфармацыю. *Тэлеграфны к. Лічбавы к.* ○ **Генетычны код** (спец.) — паслядоўнасць размяшчэння матэрыяльных носьбітаў спадчыннасці (генаў), якая перадаецца ад пакалення да пакалення. || *прым.* **ко́давы**, -ая, -ае.

**КО́ДЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (разм.). **1.** Дом, сяліба. **2.** Сям'я, род. *Сусед прыехаў з усім сваім кодлам.* **3.** *перан.* Група людзей, аб'яднаных чым-н. (пагард.). *Варожае к.*

**КО́ДЭКС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сістэматызаваны звод законаў. *Грамадзянскі к.* **2.** *перан., чаго* або *які.* Сукупнасць асноўных правіл, прынцыпаў, поглядаў. *Маральны к.* **3.** Старадаўні рукапіс у пераплёце (спец.). *Пергаментны к.*

**КО́ЖНЫ**, -ая, -ае, (*мн.* ужыв. толькі ў спалучэннях колькасных лічэбнікаў з назоўнікамі, а таксама пры словах у форме *мн.* са значэннем *адз.*), *займ. азнач.* Усякі; адзін з усіх, узяты асобна. *Кожная сям'я. К. дзень. Кожныя дзве гадзіны. Кожныя тры дні. На к. дзень. Кожнаму* (наз.) *не патрапіш сказаць. К.* (наз.) *так умее.*

**КОЗАГАДО́ВЕЦ**, -до́ўца, *мн.* -до́ўцы, -до́ўцаў, *м.* Спецыяліст у галіне козагадоўлі.

**КОЗАГАДО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Развядзенне коз як галіна жывёлагадоўлі. || *прым.* **козагадо́ўчы**, -ая, -ае.

**КО́ЗАЧКА** *гл.* каза.

**КО́ЗЛІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* казёл. **2.** Тое, што і *казёл* (у 6 знач.).

**КО́ЗЛЫ**, -аў. **1.** Сядзенне для фурмана ў передку экіпажа. **2.** Падстаўка для пілавання дроў у выглядзе бруса на чатырох ножках, збітых крыж-накрыж. *Пілаваць дровы на козлах.* **3.** Спосаб састаўлення вінтовак. *Саставіць вінтоўкі ў к.*

**КО́ЗЫР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Карта той масці, якая лічыцца старшай у гульні. **2.** *перан.* Тое, што можа даць перавагу ў чым-н. *Выбіць усе козыры.* ◊ **Хадзіць козырам** (разм.) — паводзіць сябе ганарліва. || *прым.* **казы́рны**, -ая, -ае.

**КО́ЗЫТ**, -у, *М* -зыце, *м.* Адчуванне лёгкага нервовага раздражнення, якое выклікаецца дотыкам да скуры. *Баяцца козыту.*

**КОК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Повар на судне.

**КОК**[2], -а, *м.* Мужчынская прычоска — начэсаная або закручаная пасма валасоў над ілбом. *Прычоска з кокам.*

**КОК**[3] *гл.* кокі.

**КО́КА-КО́ЛА**, -ы, *ж.* Безалкагольны газіраваны танізуючы напітак.

**КО́КАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ахоўная абалонка, у якой вусень ператвараецца ў кукалку. *Шаўкавічны к.* || *прым.* **ко́канавы**, -ая, -ае.

**КО́КІ**, -аў, *адз.* кок, -а, *м.* (спец.). Шарападобныя бактэрыі. || *прым.* **ко́кавы**, -ая, -ае.

**КО́КЛЮШ**, -у, *м.* Інфекцыйная (пераважна ў дзяцей) хвароба, якая выражаец-

ца ў приступах сутаргавага кашлю. ‖ *прым.* **кóклюшны**, -ая, -ае.

**КÓКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Стукнуўшы, разбіць. *К. вазу.* **2.** *каго.* Забіць, знішчыць. *К. вартавога.* ‖ *незак.* **кóкаць**, -аю, -аеш, -ае.

**КОКС**, -у, *м.* Від цвёрдага паліва, якое атрымліваецца з каменнага вугалю або торфу шляхам моцнага награвання без доступу паветра. ‖ *прым.* **кóксавы**, -ая, -ае.

**КОЛ**, калá, *мн.* калы́, калóў, *м.* Завостраная на канцы палка, шост. *Часаць кляновы к.* ◊ **Хоць кол на галаве чашы** *каму* — пра ўпартага, няўступчывага чалавека, які не паддаецца ўгаворам. ‖ *памянш.* **калóк**, калкá, *мн.* калкí, калкóў, *м.*, **калóчак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м. і* **кóлік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**КÓЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Вобад (суцэльны або са спіцамі), які круціцца на восі і забяспечвае рух сродкаў перамяшчэння (калёс, аўтамашын і пад. або механізмаў). *К. да тачкі. Рулявое к. Махавое к.* **2.** Пра ўсё, што мае форму круга або кальца. *К. каўбасы.* **3.** *перан.* Пералік, аб'ём чаго-н. *К. вобразаў у рамане. К. нявырашаных пытанняў.* **4.** *перан., чаго.* Галіна, сфера якой-н. дзейнасці. *К. дзейнасці. К. агульных інтарэсаў.* **5.** *перан., каго.* Група людзей, аб'яднаных чым-н. агульным. *К. гледачоў тэатра. К. сяброў.* **6.** звычайна *мн., перан., каго* або *якія.* Грамадскія, прафесійныя групоўкі людзей. *Колы беларускай інтэлігенцыі. Навуковыя колы.* ◊ **Ні ў кола ні ў мяла** (разм., неадабр.) — пра няўмелага, нядзтатнага чалавека. **Пятае кола ў возе** — пра што-н. лішняе, зусім непатрэбнае. ‖ *памянш.* **кóлца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **кóлавы**, -ая, -ае. *К. след.*

**КÓЛАС**, -а, *мн.* каласы́, каласóў, *м.* **1.** Суквецце злакаў і некаторых іншых раслін, у якіх кветкі размяшчаюцца ўздоўж канца сцябла. *Каласы пшаніцы.* **2.** Суквецце з пладамі, насеннем гэтых раслін. *Спелы к. жытнёвы.* ‖ *памянш.* **каласóк**, -скá, *мн.* -скí, -скóў, *м.* ‖ *прым.* **каласавы́**, -áя, -óе. *Каласавыя культуры. Уборка каласавых* (наз.).

**КÓЛАТЫ**[1], -ая, -ае. Нанесены колючай зброяй. *Колатая рана.*

**КÓЛАТЫ**[2], -ая, -ае. Разбіты на кавалкі. *К. цукар.*

**КÓЛБА**, -ы, *мн.* -ы, колб *і* -аў, *ж.* Лабараторная шкляная пасудзіна з доўгім горлам для хімічных работ. ‖ *памянш.* **кóлбачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **кóлбавы**, -ая, -ае.

**КÓЛЕР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Светлавы тон чаго-н.; афарбоўка. *Блакітны к. Сукенка колеру марской хвалі.* **2.** У жывапісе: адценне фарбы, густата, ступень яе яркасці. ‖ *прым.* **кóлерны**, -ая, -ае.

**КОЛЕРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да колеру, напр.: *колераадчуванне, колеракарэктар, колерамузыка, колерасппалучэнне, колераўзнаўленне, колерафатаграфія.*

**КÓЛЕРАВЫ**, -ая, -ае. Звязаны з успрыняццем колеру. *Колеравыя ўражанні.* ○ **Колеравая слепата** — тое, што і *дальтанізм.*

**КОЛЕРАМУ́ЗЫКА**, -і, *ДМ* -зыцы, *ж.* Спалучэнне музыкі з колерасветлавымі эфектамі; святламузыка. ‖ *прым.* **колерамузы́чны**, -ая, -ае.

**КÓЛІ**, *нескл., м.* Шатландская аўчарка.

**КÓЛІК** *гл.* кол.

**КÓЛІКІ**, -аў, *адз.* кóліка, -і, *ДМ* -ліцы, *ж.* Востры, рэзкі боль у жываце, у баку.

**КÓЛІСЬ**, *прысл.* (разм.). Калісьці, некалі ў мінулым. *К. і мы былі маладыя.*

**КÓЛІШНІ**, -яя, -яе. Які быў, меў месца ў мінулым. *Колішнія сустрэчы з аднакласнікамі.*

**КÓЛКА** *гл.* калоць[2].

**КÓЛКАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* колкі[1], колкі[2]. **2.** *мн.* -і, -ей. З'едлівая насмешка, колкая заўвага. *Гаварыць колкасці.*

**КÓЛКІ**[1], -ая, -ае. **1.** Які пры дакрананні колецца; калючы. *Колкія лапкі сасны.* **2.** *перан.* З'едлівы, злосны. *Колкія словы.* ‖ *наз.* **кóлкасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**КÓЛКІ**[2], -ая, -ае. Які лёгка колецца. *Колкія дровы.* ‖ *наз.* **кóлкасць**, -і, *ж.*

**КÓЛЬКАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Велічыня, лік, аб'ём, маса. *Вялікая к. дрэў у парку. К.ападкаў за суткі.* **2.** Філасофская катэгорыя, якая характарызуе прадметы і з'явы навакольнага свету з боку велічыні, аб'ёму, ліку, ступені развіцця, тэмпаў змянення і інш. (выкарыстоўваецца ва ўзаемадзеянні з катэгорыяй якасці). *Пераход колькасці ў якасць.* ‖ *прым.* **кóлькасны**, -ая, -ае.

**КÓЛЬКІ**, *Р мн.* кóлькіх, *займ. і* **КÓЛЬКІ**, *прысл.* **1.** *займ.* і *прысл. пыт.* Абазначае пытанне пра колькасць чаго-н.: якая колькасць? як многа? *К. часу? К. табе гадоў? К. каштуе часопіс?* **2.** *займ.* і *прысл. азнач.* У клічных сказах абазначае вялікую колькасць чаго-н.: якая колькасць! як многа! *К. зорак на небе! К. радасці!* **3.** *прысл. меры* і *ступені.* Абазначае меру і ступень чаго-н. *К. таго дня зімою. К. еду, а канца ўсё няма.* **4.** *займ.* і *прысл. адносныя.* Ужыв. як злучальнае слова: а) у даданых дапаўняльных сказах. *Дзеці дрэнна адчуваюць, к. праходзіць часу;* б) у даданых азначальных сказах і сказах меры і ступені. *Буду працаваць, к. дазволіць здароўе.* **5.** *у знач. ліч.* Выражае няпэўную колькасць, некалькі (разм.). *Палажы ў сумку к. яблыкаў. Хвілін праз к. пачнецца новы мастацкі фільм.* ◊ **Колькі ёсць духу (сілы)** (разм.) — 1) вельмі хутка (бегчы, ехаць); 2) вельмі моцна (крычаць, клікаць на дапамогу).

**КÓЛЬКІ-НÉБУДЗЬ**, **1.** *займ.* і *прысл.* Некалькі, няпэўная колькасць. *У цябе ёсць к. грошай.* **2.** *прысл. неазнач.* У якой меры, ступені, наколькі. *Ты хоць к. думай над сваімі ўчынкамі.*

**КОЛЬТ**, -а, *М* -льце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рэвальвер (а таксама кулямёт або іншая стралковая зброя) асобай сістэмы.

**КÓЛЬЦА**, -а, *мн.* кóльцы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) кальцы́, кóльцаў, *н.* **1.** Прадмет, звычайна металічны, які мае форму вобада, абруча, акружнасці. *Кольцы дроту. Гімнастычныя кольцы.* **2.** Тое, што мае форму такога прадмета. *Кольцы дыму.*

**КÓЛЬЧАТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які складаецца з кольцаў. *К. ланцуг.* **2.** Як састаўная частка батанічных і заалагічных назваў. *Кольчатыя чэрві.*

**КÓЛЮЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, якім можна ўкалоць, пракалоць што-н. *Колючая зброя.* **2.** Які стварае адчуванне ўколу (уколаў). *К. боль.*

**КÓЛЯДЫ** *гл.* Каляды.

**КОМ**, -а, *мн.* камы́, камóў, *м.* Круглаваты, звычайна зацвярдзелы кавалак якога-н. мяккага, рыхлага рэчыва, а таксама пра што-н. скамечанае, скручанае. *К. зямлі. К. цеста. К. паперы. Згарнуць посцілку ў к.* ◊ **Ком у горле; ком падкаціўся (падступіў) да горла** — пра спазмы ў горле пры адчуванні моцнай крыўды, радасці і пад.

**КÓМА**[1], -ы, *ж.* (спец.). Вельмі цяжкі стан, які пагражае смерцю і характарызуецца парушэннем усіх функцый арганізма. *Знаходзіцца ў коме.* ‖ *прым.* **каматóзны**, -ая, -ае. *К. стан.*

**КÓМА**[2], -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (спец.). Невялікі (меншы за 1/8 тону) інтэрвал паміж двума гукамі.

**КÓМЕЛЬГАМ**, *прысл.* (разм.). Хутка, паспешліва, неабдумана. *Кінуўся к.*

**КÓМІ**, *нескл., адз.* і *мн.* Народ фіна-ўгорскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Рэспублікі Комі, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *прым.* **кóмі**, *нязм. Комі мова.*

**КОМІВАЯЖÓР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Раз'язны гандлёвы агент якой-н. прыватнай фірмы. ‖ *прым.* **коміваяжóрскі**, -ая, -ае.

**КÓМІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Акцёр, які выконвае камічныя ролі. **2.** *перан.* Чалавек, які ўмее смяшыць, весяліць іншых (разм.).

**КÓМІКС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікая кніжка з малюнкамі або серыя малюнкаў з тэкстам лёгкага, звычайна прыгодніцкага зместу.

**КÓМІН**, -а, *мн.* кóміны, -аў *і* каміны́, камінóў, *м.* Труба для адводу дыму з печы. ‖ *прым.* **кóмінны**, -ая, -ае.

**КÓМКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак., што.* **1.** Тое, што і *камячыць.* **2.** *перан.* Рабіць наспех, скарачаючы, заканчваючы. *К. даклад.* ‖ *зак.* **скóмкаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 2 знач.).

**КÓМПАС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вызначэння старон свету, у якім намагнічаная стрэлка заўсёды паказвае на поўнач. ‖ *прым.* **кóмпасны**, -ая, -ае.

**КÓМПЛЕКС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сукупнасць прадметаў, з'яў, дзеянняў, уласцівасцей, якія складаюць адно цэлае. *Мемарыяльны к. К. гімнастычных практыкаванняў.* **2.** Сукупнасць цесна звязаных галін народнай гаспадаркі ці прадпрыемстваў розных галін гаспадаркі. *Аграпрамысловы к. Паліўна-энергетычны к.*

*Тэрытарыяльна-вытворчы к. Ваенна-прамысловы к.* ‖ *прым.* **ко́мплексны**, -ая, -ае. *Комплексная аўтаматызацыя.*

**КОН**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Месца, дзе ставяцца фігуры, якія трэба выбіваць (пры гульні ў гарадкі, пікара і пад.), або месца, куды кладзецца стаўка ў азартных гульнях. *Начарціць к. Паставіць грошы на к.* **2.** Адна партыя якой-н. гульні. *Згуляць адзін к.* ◊ **Ставіць на кон** — рызыкаваць сваім жыццём.

**КО́НАВЯЗНЫ** *гл.* канавязь.

**КО́НАВЯЗЬ** *гл.* канавязь.

**КО́НАЎКА**, -і, *ДМ* -наўцы, *мн.* -і, -навак, *ж.* Металічная пасудзіна з ручкай для піцця вады. ‖ *прым.* **ко́навачны**, -ая, -ае.

**КО́НДАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая драпежная птушка сямейства грыфаў з голай галавой і шыяй, якая корміцца пераважна падлай.

**КОНЕГАДО́ВЕЦ**, -до́ўца, *мн.* -до́ўцы, -до́ўцаў, *м.* Спецыяліст па конегадоўлі.

**КОНЕГАДО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Развядзенне коней як галіна жывёлагадоўлі. ‖ *прым.* **конегадо́ўчы**, -ая, -ае. *Конегадоўчая гаспадарка.*

**КО́НІК**[1] *гл.* конь.

**КО́НІК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Насякомае, якое скача і стракоча крыламі. ‖ *прым.* **ко́нікавы**, -ая, -ае.

**КО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (уст.). Да ўвядзення трамвайнага руху: гарадская рэйкавая дарога, па якой хадзілі вагоны на коннай цязе, а таксама вагон такой дарогі. ‖ *прым.* **ко́начны**, -ая, -ае.

**КО́НКУРС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спаборніцтва, мэтай якога з'яўляецца вылучэнне лепшых удзельнікаў, лепшых работ. *К. музыкантаў імя П.Чайкоўскага. Аб'явіць к. на лепшую п'есу. Вытрымаць к.* ‖ *прым.* **ко́нкурсны**, -ая, -ае.

**КО́ННА**, *прысл.* Вярхом, на кані.

**КОННА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да каня, коней, напр.: *коннаартылерыйскі, коннаспартыўны;* 2) які ажыццяўляецца з удзелам коней, напр.: *коннаакрабатычны, коннабалетны, коннасувязны;* 3) які мае адносіны да конегадоўлі, напр.: *конназаводскі, конназаводства.*

**КОННАГВАРДЗЕ́ЕЦ**, -дзе́йца, *мн.* -дзе́йцы, -дзе́йцаў, *м.* **1.** Той, хто служыць у гвардзейскай кавалерыі. **2.** Ваеннаслужачы лейб-гвардыі коннага палка ў дарэвалюцыйнай Расіі. ‖ *прым.* **коннагвардзе́йскі**, -ая, -ае.

**КОННАЗАВО́ДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне пародзістых коней на конных заводах. ‖ *прым.* **конназаво́дскі**, -ая, -ае.

**КО́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто едзе на кані вярхом; верхавы. **2.** Конны воін, кавалерыст.

**КО́ННІЦА**, -ы, *ж.* Коннае войска, кавалерыя.

**КО́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* конь. **2.** Які прыводзіцца ў рух коньмі. *Конная касілка.* **3.** Які мае адносіны да конніцы; кавалерыйскі. *К. ўзвод. К. атрад.*

**КО́НСКІ** *гл.* конь.

**КО́НСУЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Службовая асоба дыпламатычнага ведамства, якая прадстаўляе і абараняе прававыя і эканамічныя інтарэсы сваёй дзяржавы і яе грамадзян перад уладай іншай дзяржавы. *Генеральны к.* **2.** У Старажытным Рыме і ў Францыі (у першыя гады 19 ст.): тытул вышэйшых службовых асоб, а таксама асоба, якая мае гэты тытул. ‖ *прым.* **ко́нсульскі**, -ая, -ае. *Консульскія паўнамоцтвы.*

**КО́НСУЛЬСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Дыпламатычнае прадстаўніцтва на чале з консулам (у 1 знач.), а таксама памяшканне, якое займае гэта прадстаўніцтва. ‖ *прым.* **ко́нсульскі**, -ая, -ае.

**КОНТР...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае процідзеянне, проціпастаўленне, процілегласць таму, што выражана ў другой частцы, напр.: *контрудар, контрманеўр, контрпрапаганда.*

**КО́НТРА**, -ы, *ж.* (разм.). Тое, што і *контррэвалюцыянер.*

**КОНТРАГЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Асоба або ўстанова, якія ўзялі на сябе пэўныя абавязкі па дагаворы. ‖ *прым.* **контраге́нцкі**, -ая, -ае.

**КОНТР-АДМІРА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Першае адміральскае званне або чын на флоце, роўнае званню генерал-маёра ў сухапутных войсках, а таксама асоба, якая мае гэта званне. ‖ *прым.* **контр-адміра́льскі**, -ая, -ае.

**КОНТРАТА́КА**, -і, *ДМ* -та́цы, *мн.* -і, -та́к, *ж.* Сустрэчная атака, якую арганізоўваюць з мэтай адбіць наступаючыя варожыя войскі або перайсці ў наступленне самім. *Перайсці ў контратаку.*

**КОНТРАТАКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Правесці (праводзіць) контратаку. *К. ворага.*

**КОНТРГА́ЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -га́ек, *ж.* (спец.). Другая гайка, якая прыкручваецца за асноўнай для засцярогі яе ад самаадкручвання пры ўдарах, штуршках.

**КОНТРМАНЕ́ЎР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сустрэчны манеўр, манеўр у адказ.

**КОНТРНАСТУПЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* Падрыхтаванае ў ходзе абароны наступленне ў адказ на наступленне праціўніка. *К. войск пад Масквой у снежні 1941 года.*

**КОНТРРАЗВЕ́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Спецыяльныя органы дзяржавы для процідзеяння разведцы праціўніка, для барацьбы са шпіянажам, дыверсіямі і пад.

**КОНТРРАЗВЕ́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік контрразведкі. ‖ *ж.* **контрразве́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**КОНТРРЭВАЛЮ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Барацьба праціўнікаў рэвалюцыі супраць дзейнасці рэвалюцыйных улад. ‖ *прым.* **контррэвалюцы́йны**, -ая, -ае.

**КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік, прыхільнік контррэвалюцыі. ‖ *ж.* **контррэвалюцыяне́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак.

**КОНТРУДА́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удар, які наносяць войскі па арміі праціўніка, з мэтай яго разгрому і пераходу ў наступленне. *Нанесці ворагу к. з фланга.*

**КО́НТРЫ**. У выразе: **быць у контрах** (разм.) — быць у непрыязных адносінах з кім-н., знаходзіцца ў звадцы.

**КО́НТУР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Абрыс, лінія, якая ачэрчвае што-н. *К. лесу. К. будынка.* ‖ *прым.* **ко́нтурны**, -ая, -ае. ○ **Контурная карта** — геаграфічная карта, на якую нанесены толькі абрысы вадаёмаў і сушы. **Контурная лінія** — перарывістая лінія з кропак або каротkіх рысак.

**КО́НУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Геаметрычнае цела, якое ўтвараецца вярчэннем прамавугольнага трохвугольніка вакол аднаго з яго катэтаў. **2.** Прадмет такой формы. *К. тэрыкона.* ‖ *прым.* **ко́нусны**, -ая, -ае.

**КОНУСАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Які мае выгляд конуса.

**КО́НЧАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Вырашаны, закончаны. *Кончаная справа.* **2.** Непапраўны ў сваіх паводзінах, імкненнях і пад. (пра чалавека). *К. п'яніца.*

**КО́НЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* канец. **2.** Пра востры ці звужаны канец чаго-н. *К. іголкі.*

**КО́НЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыйсці да канца, спыніцца, завяршыцца чым-н. *Навучальны год кончыўся. Ніткі кончыліся. Гульня кончылася перамогай.* **2.** Памерці ў пакутах (разм.). ‖ *незак.* **канча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**КО́НЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *што*, а таксама *з чым* і *з інф.* Завяршыць, давесці да канца, закончыць. *К. касьбу. К. з рамонтам. К. чытаць.* **2.** *што чым.* Зрабіць што-н. у заключэнне, закончыць чым-н. *К. артыкул цытатай. К. выступленне заклікамі.* **3.** *што, з чым* і *з інф.* Палажыць канец чаму-н., спыніць што-н. *К. гулянкі. К. з п'янствам. К. бяздзейнічаць.* **4.** *што.* Завяршыць навучанне дзе-н. *К. аспірантуру.* **5.** *каго (што).* Звесці са свету (разм.). ◊ **Дрэнна (кепска) кончыць** — пра ганебны канец чыйго-н. жыцця або дзейнасці. **Кончыць жыццё** — памерці. ‖ *незак.* **канча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**КОНЬ**, каня́, *мн.* ко́ні і (*з ліч. 2, 3, 4*) кані́, ко́ней, *м.* **1.** Буйная свойская аднакапытная жывёліна, якая выкарыстоўваецца для перавозкі грузаў і людзей, а таксама для верхавой язды. *Купіць каня. Навязаць каня. Па конях!* (кавалерыйская каманда для пасадкі на коней). **2.** Шахматная фігура з галавой каня. *Хадзіць канём.* **3.** Абабіты скурай брус на чатырох ножках для гімнастычных практыкаванняў. ◊ **На кані і пад канём** — у самых разнастайных,

прыемных і непрыемных сітуацыях (пабываць, быць). **Ні па кані, ні па аглоблях** (разм.) — не так, як хацелася (зрабілася, атрымалася). **Ход канём** — пра смелае, рашучае дзеянне. ‖ *памянш.* **ко́нік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **ко́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **ко́нскі**, -ая, -ае (да 1 знач.). *К. двор. Конская грыва.*

**КО́НЮХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік, які даглядае коней.

**КО́ПАНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Полаз са ствала дрэва, выкапанага з коранем.

**КО́ПАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Выкапаны штучны вадаём, запоўнены вадой; сажалка.

**КОПАСКЛАДА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Сельскагаспадарчая машына для складання сена, саломы ў копы.

**КО́ПАЦЬ**, -і, *ж.* Сажа, якая асядае слоем на паверхні чаго-н.; куродым. *К. на сценах.*

**КОП'ЕПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Які мае выгляд, форму кап'я.

**КО́ПІЯ**, -і, *мн.* -і, -пій, *ж.* **1.** Дакладнае ўзнаўленне, паўтарэнне чаго-н., зробленае з арыгінала; новы экземпляр. *К. карціны. Зняць копію з пасведчання аб нараджэнні.* **2.** *перан.* Пра каго-н. (што-н.), вельмі падобнага да другога (на другое). *Сын — к. свайго бацькі.*

**КО́ПКА**[1] *гл.* капа́ць.

**КО́ПКА**[2] *гл.* капа́[1].

**КО́ПТУР**, -а *і* **КАПТУ́Р**, -а́, *м.* У выразе: **з коптурам (каптуром)** (разм.) — вышэй краёў; з верхам. *Набраць кош бульбы з коптурам.*

**КО́РАБ**, -а, *мн.* карабы́, -о́ў, *м.* Выраб з лубу, бяросты, саломы і пад. для захавання, пераноскі, упакоўкі чаго-н. ◊ **Сем карабоў** (нагаварыць, наабяцаць і пад.; разм., іран.) — вельмі многа.

**КО́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* **1.** Закупорка для бутэлек. **2.** Абзац (уст.). ‖ *прым.* **ко́ркавы**, -ая, -ае.

**КО́РАНЬ**, -я, *мн.* карані́, каранёў, *м.* **1.** Падземная частка расліны, пры дапамозе якой яна замацоўваецца ў зямлі і атрымлівае пажыўныя рэчывы. *Выкапаць куст з коранем.* **2.** Частка зуба, ногця, воласа і пад., якая знаходзіцца ў целе. *К. зуба.* **3.** *перан.* Пачатак, аснова чаго-н. *К. зла.* **4.** У граматыцы: асноўная частка слова без суфікса і прыстаўкі. *Правільна вызначыць к. слова.* **5.** У матэматыцы: лік, які пры ўзвядзенні ў пэўную ступень дае дадзены лік. *Квадратны к. Здабыць к.* ◊ **Глядзець у корань** (разм.) — унікаць у сутнасць якой-н. справы. **Вырваць з коранем** — канчаткова пазбавіцца ад чаго-н. **На корані** — пра расліны: не зжаты, не скошаны. **Пад корань** — 1) ля самай асновы (ссякаць, зразаць што-н.). *Высякаць кусты пад корань;* 2) канчаткова (разбураць, знішчаць). **Пусціць карані** — трывала, надоўга абаснавацца дзе-н. **У корані** — 1) зусім, абсалютна (не згаджацца з чым-н.); 2) у самай аснове, карэнным чынам (змяняць і пад.). *У корані змянілася жыццё.* ‖ *памянш.* **карэ́ньчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **каранёвы**, -ая, -ае (да 1, 2 і 4 знач.).

**КО́РБА**, -ы, *мн.* -ы, корб *і* -аў, *ж.* Ручка, якой прыводзяць у рух што-н. *К. калодзежа.*

**КО́РДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, корд *і* -аў, *ж.* (спец.). Доўгая вяроўка, на якой ганяюць коней па крузе пры выездзе, абучэнні. *Ганяць на кордзе.*

**КОРЖ**, каржа́, *мн.* каржы́, каржо́ў, *м.* Прэснае, сухое печыва з мукі; праснак. *Напячы каржоў.* ‖ *памянш.* **ко́ржык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **ко́ржавы**, -ая, -ае.

**КО́РЖЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* корж. **2.** Салодкі кандытарскі выраб, від пячэння. ‖ *прым.* **ко́ржыкавы**, -ая, -ае.

**КО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Зацвярдзелы верхні слой чаго-н. *Ледзяная к.* ‖ *прым.* **ко́ркавы**, -ая, -ае.

**КО́РКАВЫ**[1] *гл.* корка.

**КО́РКАВЫ**[2] *гл.* корак.

**КОРМ**, -у, *мн.* кармы́, кармо́ў, *м.* Ежа жывёлы. ‖ *прым.* **кармавы́**, -а́я, -о́е. *Кармавыя буракі. Кармавыя травы.*

**КОРМА...** (а таксама **карма...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да корму, кармоў, напр.: *кормавытворчасць, кормаздрабняльнік, корманарыхтоўка, кормаправод, кормапрыгатавальны, кормараздатчык, кормаўборачны.*

**КО́РМНЫ**, -ая, -ае. Якога кормяць на забой; адкормлены. *Кормныя свінні.*

**КО́РПАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **КАРПА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* (разм.). **1.** Капацца ў чым-н., перабіраючы, шукаючы што-н. *К. ў пяску. К. ў паперах.* **2.** *перан.* Рабіць што-н. марудна, не спяшаючыся або няўмела. *К. ля стагоў сена.* ‖ *наз.* **ко́рпанне**, -я, *н. і* **карпа́нне**, -я, *н.*

**КО́РПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае *і* **КАРПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* (разм.). **1.** *што чым.* Раскопваць, калупаць. *К. зямлю матыкай.* **2.** *перан., што.* Марудна рабіць што-н. ‖ *наз.* **ко́рпанне**, -я, *н. і* **карпа́нне**, -я, *н.*

**КО́РПУС**, -а, *мн.* ко́рпусы, -аў *і* карпусы́ *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) ко́рпусы, карпусо́ў, *м.* **1.** *мн.* ко́рпусы, -аў. Тулава чалавека або жывёліны. *Павярнуцца ўсім корпусам. Падацца корпусам уперад.* **2.** *мн.* карпусы́, -о́ў. Аснова, каркас, знешняя абалонка чаго-н. *К. гадзінніка. К. судна.* **3.** *мн.* карпусы́, -о́ў. Асобны будынак на агульнай пляцоўцы або асобная частка будынка. *К. фабрыкі. Карпусы дзіцячай бальніцы.* **4.** *мн.* карпусы́, -о́ў. Вайсковае злучэнне з некалькіх дывізій. *Стралковы к. Камандаванне корпусам.* **5.** *мн. няма.* Сукупнасць асоб аднолькавай прафесіі, якога-н. аднаго афіцыйнага або службовага становішча. *Дыпламатычны к. Афіцэрскі к.* **6.** *мн.* карпусы́, -о́ў. У дарэвалюцыйнай Расіі: сярэдняя ваенна-навучальная ўстанова. *Кадэцкі к. Марскі к.* **7.** *мн.* ко́рпусы, -аў. Сукупнасць, поўны збор якіх-н. тэкстаў, аб'яднаных нейкай агульнай прыкметай; электронны рэсурс (спец.). *К. паэтычных тэкстаў. Лінгвістычны к.* **8.** Назва аднаго з размераў друкарскага шрыфту. ‖ *прым.* **ко́рпусны**, -ая, -ае (да 2, 3 і 7 знач.) *і* **карпусны́**, -а́я, -о́е (да 4 і 6 знач.). *Корпусны плуг. Корпусныя даследаванні. Карпусны камандзір.* ○ **Корпусная лінгвістыка** — раздзел мовазнаўства, які займаецца распрацоўкай і стварэннем корпусаў тэкстаў, а таксама іх выкарыстаннем у якасці інструмента для лінгвістычных даследаванняў.

**КОРТ**[1], -у, *М* -рце, *м.* Баваўняная тканіна, звычайна цёмнага колеру, для рабочага і спартыўнага адзення; «чортава скура». ‖ *прым.* **карто́вы**, -ая, -ае. *Картовыя штаны.*

**КОРТ**[1], -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пляцоўка для гульні ў тэніс. *Тэнісныя корты.* ‖ *прым.* **ко́ртавы**, -ая, -ае.

**КО́РУШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Невялікая марская прамысловая рыба атрада селядцовападобных. ‖ *прым.* **ко́рушкавы**, -ая, -ае. *Сямейства корушкавых.* (наз.).

**КО́РЦІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Афіцэрская халодная колючая зброя ў форме кароткага кінжала.

**КОРЧ**, карча́, *мн.* карчы́, карчо́ў, *м.* **1.** Пень, вывернуты з зямлі з карэннем. *Сабраць карчы ў кучы.* **2.** Куст бульбы, цыбулі, вывернуты з зямлі (разм.). *Выкапаць два карчы бульбы.* ‖ *памянш.* **ко́рчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**КО́РШАК**, -а *і* **КАРША́К**, -а́, *мн.* каршакі́, каршако́ў, *м.* Тое, што і *ястраб.* ‖ *прым.* **каршако́вы**, -ая, -ае.

**КОСА...** (а таксама **каса...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. касы (косы) (у 1 знач.), напр.: *косаабрэзаны, косапрыцэльны.*

**КО́СІНУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Трыганаметрычная функцыя вугла ў прамавугольным трохвугольніку, роўная адносінам да гіпатэнузы катэта, прылеглага да дадзенага вострага вугла.

**КО́СКА**[1] *гл.* каса́[1].

**КО́СКА**[2] *гл.* каса́[2].

**КО́СКА**[3], -і, *ДМ* -сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Знак прыпынку (,), які раздзяляе словы, групы слоў і сказы. *Раздзяліць коскай аднародныя члены сказа.*

**КО́СМАС**, -у, *м.* **1.** Сусвет (Сонечная сістэма, зоркі, галактыкі і пад.). **2.** Прастора, якая распасціраецца за межамі зямной атмасферы на вышыні, большай за 100 км. *Палёт у к. Асваенне космасу.* ‖ *прым.* **касмі́чны**, -ая, -ае. *К. карабель. К. палёт. Касмічныя прамяні. К. век.*

**КОСНАЯЗЫ́КАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Расстройства мовы, якое праяўляецца ў няздольнасці правільна вымаўляць гукі; невыразнае вымаўленне. **2.** *перан.* Няўменне лёгка, свабодна гаварыць; памылкі ў маўленні.

**КОСНАЯЗЫ́КІ**, -ая, -ае. **1.** Хворы на коснаязыкасць (у 1 знач.). **2.** Невыразны, незразумелы (пра мову).

**КО́СНЫ**[1], -ая, -ае. Неўспрымальны да новага, перадавога; адсталы. *Косныя погляды. К. чалавек.* ‖ *наз.* **ко́снасць**, -і, *ж.*

**КО́СНЫ**[2] *гл.* косць.

**КО́СТАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** *гл.* косць. **2.** Цвёрдае ядро, семя ў некаторых пладах. *К. персіка. К. слівы.* **3.** Тое, што і *шчыкалатка. У рацэ вады па костачкі.* **4.** Гібкая пласцінка, што ўшываецца ў карсет, сукенку і пад. ‖ *прым.* **ко́стачкавы**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.). *Костачкавыя плады.*

**КО́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Тое, што і *косць* (у 1 знач.). *Сабака грыз костку.* **2.** Тое, што і *косць* (у 5 знач.). *Панскай косткі чалавек.* ◊ **Як костка ў горле** (разм.) — пра таго (тое), што вельмі перашкаджае каму-н., даймае каго-н.

**КО́СЦЬ**, -і, *мн.* ко́сці, касце́й, *ж.* **1.** Асобная састаўная частка шкілета хрыбетных жывёл і чалавека. *Ключычная к.* **2.** *мн.* Астанкі цела нябожчыка. **3.** *зб.* Іклы, біўні некаторых жывёл, якія выкарыстоўваюцца для дробных вырабаў. *Слановая к. Упрыгожанні з косці.* **4.** *мн.* Кубікі або пласцінкі з рознага матэрыялу для гульні. *Гуляць у косці.* **5.** *якая.* Пра сацыяльнае паходжанне. *Панская к.* ◊ **Да касцей** — вельмі моцна (прамокнуць, прамерзнуць і пад.). **Легчы касцьмі** — загінуць. **Скура ды косці** — пра вельмі худога чалавека. ‖ *памянш.* **ко́стачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1, 2, 4 і 5 знач.). ◊ **Перамываць костачкі** *каму* — абгаворваць, пляткарыць. **Разабраць па костачках** — вельмі падрабязна. ‖ *прым.* **касцявы́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.), **ко́сны**, -ая, -ае (да 1 знач.) і **касцяны́**, -а́я, -о́е (да 3 знач.). *Касцявая тканка. Косныя хваробы. Касцяны гузік.*

**КО́СЫ** *гл.* касы.

**КОТ**, ката́, *М* каце́, *мн.* каты́, като́ў, *м.* Свойская жывёліна сямейства кашэчых; самец кошкі. *Сібірскі к.* ◊ **Кату па пяту** (разм., жарт.) — вельмі малы ростам. **Купіць ката ў мяшку** (разм.) — набыць што-н., не ведаючы яго якасці. **Як кот наплакаў** *каго-чаго* (разм., жарт.) — пра нязначную колькасць чаго-н. ‖ *памянш.-ласк.* **ко́цік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* і **като́к**, -тка́, *мн.* -ткі́, -ткоў, *м.* ‖ *прым.* **каці́ны**, -ая, -ае.

**КО́ТЛІШЧА**, -а, *н.* (разм.). **1.** Месца жыхарства, сяліба. *Ён і цяпер на дзедавым котлішчы сядзіць.* **2.** *перан.* Род, сям'я. *Благі хлопец, як і ўсё іх к.*

**КО́ТНАЯ**, -ай. Цяжарная (пра авечку, казу, кошку).

**КО́ЎДРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Пасцельная прыналежнасць, якой накрываюцца. *Цёплая к.* ‖ *прым.* **ко́ўдравы**, -ая, -ае.

**КО́ЎЗАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Расчышчанае роўнае месца, пакрытае лёдам, для катання; каток.

**КО́ЎЗАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). **1.** Рухацца па слізкай паверхні; слізгацца. *К. па ледзяной дарозе. Ногі коўзаюцца.* **2.** Катацца па слізкай паверхні. *Дзеці коўзаюцца на лёдзе.* **3.** Рухацца, не сядзець спакойна, ёрзаць. *К. па канапе.* ‖ *наз.* **ко́ўзанне**, -я, *н.*

**КО́ЎЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Тое, што і *коўзацца* (у 1 знач.). *Ногі коўзаюць па мокрым бервяне.* **2.** Вадзіць, соўгаць па якой-н. паверхні. *К. анучай па падлозе.* ‖ *наз.* **ко́ўзанне**, -я, *н.*

**КО́ЎЗКІ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Зусім гладкі, які не стварае трэння і на якім цяжка ўтрымацца; слізкі. *Коўзкая сцежка.* **2.** Які мае гладкую паверхню і рухаецца шляхам слізгання. *Коўзкія санкі.* ‖ *наз.* **ко́ўзкасць**, -і, *ж.*

**КО́ЎКА** *гл.* каваць.

**КО́ЎКІ**, -ая, -ае. Які добра паддаецца каванню, коўцы. *Коўкае жалеза.* ‖ *наз.* **ко́ўкасць**, -і, *ж.*

**КОЎШ**, каўша́, *мн.* каўшы́, каўшо́ў, *м.* **1.** Шырокая круглая пасудзіна з ручкай для чэрпання вадкасці. *Зачэрпнуць вады каўшом.* **2.** Вялікае металічнае прыстасаванне ў розных механізмах для зачэрпвання, высыпання, разлівання і пад. *Ліцейны к. К. экскаватара.* ‖ *прым.* **каўшо́вы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**КО́ФЕ**, *нескл., м.* Тое, што і *кава.* ‖ *прым.* **кафе́йны**, -ая, -ае. *Кафейная плантацыя.*

**КО́ФТА**, -ы, *ДМ* -фце, *мн.* -ы, кофт, *ж.* Верхняе кароткае (звычайна трохі ніжэй пояса) жаночае адзенне. *Модная к.* ‖ *памянш.-ласк.* **ко́фтачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **ко́фтачны**, -ая, -ае.

**КО́ХЛІК**, -у, *м.* (разм.). Тое, што і *коклюш.* ‖ *прым.* **ко́хлічны**, -ая, -ае.

**КО́ЦІК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Марская млекакормячая жывёліна сямейства вушастых цюленяў з каштоўным футрам. **2.** Футра гэтай жывёліны. ‖ *прым.* **ко́цікавы**, -ая, -ае. *Коцікавае футра.*

**КО́ЦІК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Суквецце з дробных кветачак у некаторых дрэвавых раслін, якое ападае пасля цвіцення. *Коцікі на вербах.*

**КО́ЦІК**[3] *гл.* кот.

**КОШ**, каша́, *мн.* кашы́, кашо́ў, *м.* **1.** Сплеценая з лазы, карэння і пад. круглая пасудзіна ў выглядзе кашолкі для складання і пераноскі чаго-н. *Сплесці к. Насыпаць к. бульбы. К. грыбоў.* **2.** Скрыня ў млыне пад жорнамі, у якую засыпаюць збожжа для памолу. ‖ *прым.* **кашо́вы**, -ая, -ае.

**КО́ШАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.). Зялёная падкормка (сумесь вікі з аўсом, зялёнае жыта і пад.).

**КО́ШКА**[1], -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Свойская млекакормячая жывёліна сямейства кашэчых; самка ката. *К. з кацянятамі. К. мыецца — госці будуць* (павер'е). *К. мышцы не таварыш* (прыказка). *Збродлівай кошцы хвост уцінаюць* (прыказка). **2.** Драпежная млекакормячая жывёліна сямейства кашэчых (леў, тыгр, барс і інш.). **3.** *мн.* Жалезныя шыпы або іншыя прыстасаванні, якія мацуюцца да абутку для пад'ёму на слупы, мачты і пад. **4.** Невялікі якар (спец.). ◊ **На сэрцы (на душы) кошкі скрабуць** — пра трывожны стан, чаканне чаго-н. непрыемнага. **Чорная кошка прабегла** *паміж кім* — сапсаваліся адносіны, пасварыліся. ‖ *памянш.-ласк.* **ко́шачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **кашэ́чы**, -ая, -ае і **каша́чы**, -ая, -ае. *Кашэчыя* (і *кашачыя*) *лапы. Кашэчыя* (і *кашачыя*) *звычкі. Сямейства кашэчых* (наз.).

**КО́ШКА**[2], -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (уст.). Рамённы бізун з некалькімі хвастамі.

**КОШТ**, -у, *М* -шце, *м.* Выражаная ў грашах вартасць чаго-н. або велічыня затрат на што-н. *К. паліто. К. вытворчасці.* ◊ **На чый (які) кошт; за чый (які) кошт** — на чые-н. сродкі, грошы.

**КО́ШЫК**, -а, *мн.* -і, *м.* Тое, што і *кош* (у 1 знач.); невялікі кош. ‖ *прым.* **ко́шыкавы**, -ая, -ае.

**КПІ́НЫ**, кпін *і* -аў. Злыя жарты з каго-, чаго-н. ‖ *прым.* **кпі́нны**, -ая, -ае.

**КПІЦЬ**, кплю, кпіш, кпіць; кпім, кпіце́, кпяць; *незак., з каго-чаго* і *без дап.* Строіць кпіны, насміхацца. *Нельга к. з чалавека.*

**КПЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які любіць насміхацца з іншых, схільны да кпін. *Кплівая суседка.* **2.** Які заключае ў сабе кпіны, насмешку. *К. тон. К. выраз твару.* ‖ *наз.* **кплі́васць**, -і, *ж.*

**КРАБ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Род марскога рака з дзесяццю нагамі. **2.** Мяса гэтай жывёліны. **3.** Эмблема на форменнай фуражцы маракоў (разм.). ‖ *прым.* **кра́бавы**, -ая, -ае (у 1 знач.). *К. промысел.*

**КРАБАЛО́Ў**, -ло́ва, *мн.* -ло́вы, -ло́ваў, *м.* **1.** Лавец крабаў. **2.** Судна для лоўлі крабаў і перапрацоўкі іх на кансервы. ‖ *прым.* **крабало́ўны**, -ая, -ае.

**КРАВЕ́Ц**, краўца́, *мн.* краўцы́, краўцо́ў, *м.* Спецыяліст па шыцці адзення. ‖ *прым.* **краве́цкі**, -ая, -ае.

**КРА́ГІ**, -аў, *адз.* (разм.) кра́га, -і, *ДМ* кра́зе, *ж.* **1.** Скураныя накладныя халявы з засцежкамі. **2.** Раструбы ў пальчатках.

**КРАДЗЁЖ** *гл.* красці.

**КРА́ДЗЕНЫ**, -ая, -ае. Здабыты крадзяжом. *Крадзенае дабро. Скупшчык крадзенага* (наз.).

**КРАДКО́М**, *прысл.* Скрытна, крадучыся, незаўважна для іншых.

**КРА́ДУЧЫСЯ**, *прысл.* Употай, скрытна, крадком. *Увайсці ў хату к.*

**КРАЕВУГО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Істотны, вельмі важны. *Краевугольнае пытанне.* ◊ **Краевугольны камень** *чаго* — аснова, асноўная ідэя чаго-н.

**КРАЁВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* край[1]. **2.** Які адлюстроўвае дыялектныя асаблівасці пэўнага рэгіёна. *Віцебскі к. слоўнік.*

**КРАЖ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Ланцуг невысокіх гор. *Лясісты к.* **2.** Кароткі абрубак тоўстага бервяна. *Дубовы к.*

**КРАІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, краі́н, *ж.* **1.** Мясцовасць, тэрыторыя, край (у 2 знач.). *Горная к. Цёплыя краіны.* **2.** Дзяржава. *Родная к.*

**КРАЙ**[1], -ю, *мн.* краі́, краёў, *м.* **1.** Гранічная лінія, канечная частка чаго-н. *К. услона. Наліць вядро да краёў.* **2.** Вобласць, мясцовасць, што вылучаюцца па якой-н. прымеце. *Родны к. Партызанскі к. К. блакітных азёр. Яго бачылі ў нашых краях.* **3.** Буйная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка. *Прыморскі к.* ○ **Пярэдні край** — передавыя пазіцыі. ◊ **Біць (ліцца) цераз край** — праяўляцца з вялікай сілай. **З краю ў край, ад краю да краю; з краю да краю** — па ўсіх напрамках. **Канца-краю не відаць** — пра тое, чаго вельмі многа. **Краем вока** — мімаходам, вельмі кароткі час (бачыць каго-, што-н.). **Краем вуха** — няўважліва, урыўкамі (слухаць каго-н.). **Край свету** — вельмі далёка. **На краі магілы (гібелі)** — у непасрэднай блізкасці са смяртэльнай небяспекай (быць, знаходзіцца). **Хапіць цераз край** — зрабіць або сказаць што-н. недарэчнае, лішняе. || *памянш.* **краёк**, крайка́, *мн.* крайкі́, крайко́ў, *м.* || *прым.* **краявы́**, -а́я, -о́е (да 3 знач.) *і* **краёвы**, -ая, -ае (да 3 знач.). *К. з'езд.*

**КРАЙ**[2], *прыназ. з Р* (разм.). Каля, побач (чаго-н.). *К. гасцінца старога.*

**КРА́ЙНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Крайняя ступень чаго-н., празмернае праяўленне чаго-н. *З адной крайнасці ў другую. Розныя крайнасці ў думках.* **2.** *перан.* Што-н. зусім непадобнае, процілеглае іншаму. *Нездарма кажуць, што крайнасці сыходзяцца.* **3.** Цяжкае і небяспечнае становішча. *Давесці чалавека да крайнасці.*

**КРА́ЙНЕ**, *прысл.* Вельмі, надзвычайна. *К. неабходна ехаць.*

**КРА́ЙНІ**, -яя, -яе. **1.** Які знаходзіцца на краі чаго-н., найбольш аддалены. *Крайняя хата ў вёсцы. Крайняя Поўнач.* **2.** Вельмі моцны, надзвычайны, выключны. *Крайняя патрэба. Крайнія меры.* **3.** Найбольш непрымірымы, радыкальны (пра погляды, кірункі, палітычныя групоўкі і пад.). *К. лібералізм. Крайнія погляды.* **4.** Які нельга адкладваць на потым, апошні (пераважна пра час). *К. тэрмін.* ◊ **У крайнім выпадку** — калі не будзе іншага выйсця. **Па крайняй меры** — ва ўсякім выпадку, не менш чым.

**КРАКАВЯ́К**, -а, *м.* Польскі нацыянальны танец, а таксама музыка ў рытме гэтага танца.

**КРАКАДЗІ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйны паўзун з тоўстай панцырнай скурай, які водзіцца ў вадаёмах трапічных краін. || *прым.* **кракадзілавы**, -ая, -ае *і* **кракадзілаў**, -ава. *Кракадзілавая ферма. Кракадзілава скура. Кракадзілава пашча.* ◊ **Кракадзілавы слёзы** — пра няшчырае, прытворнае спачуванне.

**КРАКАДЗІ́ЛАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* кракадзіл. **2.** Зроблены са скуры кракадзіла. *Кракадзілавая сумка.*

**КРА́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Крычаць «кра-кра» (звычайна пра качак і некаторых іншых птушак). || *аднакр.* **кра́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. || *наз.* **кра́канне**, -я, *н.*

**КРАКЕ́Т**, -а, *М* -ке́це, *м.* Гульня, у якой драўляныя шары ўдарамі драўляных малаткоў праводзяцца праз драцяныя варотцы. || *прым.* **краке́тны**, -ая, -ае. *Кракетныя шары. К. малаток.*

**КРАКІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак. і незак., што.* Гуляючы ў кракет, стукнуць (стукаць) сваім шарам шар іншага іграка. || *наз.* **кракіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**КРАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які плавае кролем. || *ж.* **кралі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**КРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, крам *і* -аў, *ж.* Магазін. *Купіць у краме. Вакол крам ды зноў к нам* (прыказка). || *памянш.* **кра́мка**, -і, *ДМ* -мцы, -і, -мак, *ж.* || *прым.* **кра́мны**, -ая, -ае.

**КРАМЗАНУ́ЦЬ** *гл.* крэмзаць.

**КРАМЗО́ЛІ**, -яў, *адз.* крамзо́ля, -і, *ж.* (разм.). Невыразна, непрыгожа напісанае; каракулі.

**КРАМЗО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак.* (разм.). Няўмела, неакуратна пісаць; крэмзаць. *Калі абы-як к., дык лепш не псаваць паперу.*

**КРАМЛЁЎСКІ** *гл.* крэмль.

**КРА́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Уладальнік крамы або прадавец у ёй. || *ж.* **кра́мніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. || *прым.* **кра́мніцкі**, -ая, -ае.

**КРАМНІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Матэрыя фабрычнага вырабу.

**КРА́МНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** *гл.* крама. **2.** Фабрычнага вырабу, куплены ў краме. *Крамная сукенка.*

**КРАМО́ЛА**, -ы, *мн.* -ы, -мо́л, *ж.* **1.** Змова, мяцеж, бунт (уст.). **2.** *перан.* Учынкі, погляды, якія супярэчаць агульнапрынятым нормам, агульнаму парадку (разм.). *У гэтым я не бачу ніякай крамолы.* || *прым.* **крамо́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КРАМО́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Змоўшчык, бунтаўшчык, а таксама наогул чалавек, які выступае супраць улады, законаў. || *прым.* **крамо́льніцкі**, -ая, -ае.

**КРАМО́ЛЬНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (уст.). Займацца крамолай (у 1 знач.), бунтаваць.

**КРАМЯНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *незак.* Станавіцца крамяным, цвярдзець, наліваццa. *Качаны капусты крамянеюць.* || *зак.* **акрамяне́ць**, -ее.

**КРАМЯНЁВЫ** *гл.* крэмень.

**КРАМЯНІ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Усеяны каменнем, камяністы. *Крамяністая дарога.* **2.** Які складаецца з крэменязёму. *К. сланец.* || *наз.* **крамяні́стасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**КРАМЯ́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Пругкі, цвёрды, сакавіты. *К. качан капусты.* **2.** Поўны сілы і здароўя (пра чалавека). **3.** *перан.* Свежы, ядраны. *Крамянае надвор'е.* || *наз.* **крамя́насць**, -і, *ж.*

**КРАН**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыстасаванне ў выглядзе трубкі для выпускання вадкасці або газу з рэзервуара або трубаправода. *Уключыць к. з гарачай вадой.* || *прым.* **кра́навы**, -ая, -ае *і* **кра́нны**, -ая, -ае.

**КРАН**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Механізм для пад'ёму і перамяшчэння грузаў. *Вежавы к. Пад'ёмны к.* || *прым.* **кра́навы**, -ая, -ае.

**КРАНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які кранае, хвалюе. *Кранальная карціна.* || *наз.* **крана́льнасць**, -і, *ж.*

**КРАНАЎШЧЫ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Машыніст, які абслугоўвае кран[2]. || *ж.* **кранаўшчы́ца**, -ы, *мн.* -ы, -чы́ц. || *прым.* **кранаўшчы́цкі**, -ая, -ае (разм.).

**КРАНА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Зрушвацца з месца, пачынаць рухацца. *Электрычка кранаецца з месца.* **2.** *каго-чаго.* Датыкацца да каго-, чаго-н. *К. рукой пляча таварыша. Смычок ледзь кранаўся струн.* || *зак.* **крану́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся.

**КРАНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што.* **1.** Датыкацца, дакранацца да каго-, чаго-н.; чапаць. *К. рукой. Нельга к. ядавітыя расліны.* **2.** Парушаць чый-н. спакой, турбаваць; закранаць каго-, што-н. у гутарцы, прамове. *Яна не хацела кранаць маці. Аграном кранаў пытанні ўрадлівасці глебы.* **3.** *перан.* Хваляваць, расчульваць. *Маё сэрца кранаюць родныя краявіды.* **4.** Прыводзіць у рух. *Паравоз кранае вагоны.* || *зак.* **крану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты.

**КРАНШНЭ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая балотная птушка з доўгай, загнутай уніз дзюбай; род куліка.

**КРАНШТЭ́ЙН**, -а, *мн.* -аў, *м.* Выступ або ўмацаваная ў сцяне касая падпорка для падтрымкі балкона, карніза і пад. *Аконны карніз на кранштэйнах.*

**КРАП**, -у, *м.* **1.** Дробныя, іншага колеру плямкі, крапіны на чым-н. *Белы мармур з шэрым крапам.* **2.** Умоўная паметка на рубашцы ігральнай карты. *Шулерскі к.* || *прым.* **кра́павы**, -ая, -ае *і* **краплёны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**КРА́ПАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* крап. **2.** Тое, што і *марэнавы.*

**КРАПАСНЫ́** *гл.* крэпасць[1].

**КРА́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Падаць дробнымі кроплямі (пра дождж). *Стаў к. дождж.* **2.** Пакрываць крапам што-н. *К. чарнілам на паперу.* || *наз.* **кра́панне**, -я, *н.*

**КРАПЕ́Ж**, -пяжу́, *м., зб.* (спец.). **1.** Матэрыял (стойкі, шчыты і пад.) для мацавання горных вырабатак. **2.** Дэталі для змацавання чаго-н. (балты, заклёпкі). || *прым.* **крапе́жны**, -ая, -ае. *К. лес.*

**КРАПІВА́**, -ы́, *ж.* Травяністая расліна сямейства крапіўных з тонкімі пякучымі валаскамі на сцябле і лісці. *Нарваць крапівы.* || *прым.* **крапіўны**, -ая, -ае. ○ **Крапіўная ліхаманка** — тое, што і *крапіўніца* (у 1 знач.).

**КРАПІ́ЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пэндзаль для апырсквання свянцонай вадой пры царкоўных абрадах.

**КРАПІ́ЛЬНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Пасудзіна для свянцонай вады, у якую мачаюць крапіла.

**КРАПІ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Горнарабочы, які працуе на крапежных работах.

**КРА́ПІНА**, -ы, *мн.* -ы, -пін, *ж.* Пляма іншага колеру на чым-н. *Матэрыял у крапіны.* ‖ *памянш.* **кра́пінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**КРАПІ́ЎНІК**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а, *мн.* -і, -аў. Стракаты матылёк, вусені якога жывуць на крапіве. **2.** -у. Зараснік крапівы.

**КРАПІ́ЎНІЦА**, -ы, *ж.* **1.** Хвароба, якая суправаджаецца свербам і з'яўленнем на скуры пухіркоў, падобных да апёкаў крапівы. **2.** Род матылькоў з чорным абрамленнем крылаў і блакітнымі плямамі на іх.

**КРАПІ́ЦЬ**, краплю́, кро́піш, кро́піць; кро́плены; *незак., каго-што.* **1.** Пырскаць на каго-, што-н. *К. сцены вадой.* **2.** Пырскаць свянцонай вадой пры выкананні некаторых царкоўных абрадаў. *К. крапілам.* ‖ *зак.* **акрапі́ць**, акраплю́, акро́піш, акро́піць; акро́плены *і* **пакрапі́ць**, -краплю́, -кро́піш, -кро́піць; -кро́плены.

**КРАПЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Нанясенне крапу на што-н.

**КРАПЛЁНЫ** *гл.* крап.

**КРАСА́**, -ы́, *ж.* **1.** Хараство, прыгажосць; што-н. прыгожае, прывабнае. *К. асенняга лесу. К. беларускага краю. Дзявочая к.* **2.** Упрыгожанне, слава чаго-н. *К. і гордасць Мінска — сталічныя паркі і тэатры.* **3.** Пылок на злакавых раслінах, што красуюць.

**КРАСАВА́ЦЦА**, -су́юся, -су́ешся, -су́ецца; -су́йся; *незак.* **1.** Прыцягваць увагу, вылучацца сваім хараством. *У цэнтры горада красуецца новы тэатр. Нібы кветка, красуецца дачка.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Быць на відным месцы; вылучацца, віднецца. *На стале красавалася ваза з кветкамі.* **3.** Выстаўляць сябе напаказ, любуючыся сваёй знешнасцю. *Любіць дзяўчына к. перад люстрам.* **4.** Жыць шчасліва, пасляхова развівацца. *Красуйся, мой родны край!* ‖ *зак.* **пакрасава́цца**, -су́юся, -су́ешся, -су́ецца; -су́йся (да 3 знач.). ‖ *наз.* **красава́нне**, -я, *н.*

**КРАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Цвісці (пра злакавыя расліны). *Красуе жыта.* **2.** Тое, што і *красавацца* (у 4 знач.). *Красуй на радасць сынам тваім і ўнукам, дарагая Беларусь!* ‖ *наз.* **красава́нне**, -я, *н.*

**КРАСАВІ́К**, -а́, *м.* Чацвёрты месяц каляндарнага года. ‖ *прым.* **красаві́цкі**, -ая, -ае *і* **красавіко́вы**, -ая, -ае.

**КРАСА́ЛА**, -а, *мн.* -ы, -са́л *і* -аў, *н.* Тое, што і *крэсіва.*

**КРАСАМО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Надзелены красамоўствам. *К. дакладчык.* **2.** *перан.* Які выразна перадае што-н., сведчыць наглядна пра што-н. *К. факт.* ‖ *наз.* **красамо́ўнасць**, -і, *ж.*

**КРАСАМО́ЎСТВА**, -а, *н.* Уменне гаварыць прыгожа і пераканаўча; прамоўніцкі талент. *Валодаць красамоўствам.*

**КРАСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Высякаць агонь крэсівам. ‖ *аднакр.* **красану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (разм.).

**КРАСВО́РД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *крыжаванка.* ‖ *прым.* **красво́рдны**, -ая, -ае.

**КРАСЁНЦЫ** *гл.* кросны.

**КРА́СІЦЬ**, кра́шу, кра́сіш, кра́сіць; *незак.* (разм.). Рабіць прыгожым, упрыгожваць. *Ёлку красяць гірлянды. Хвароба не красіць чалавека.*

**КРА́СКА**, -і, *ДМ* кра́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* (разм.). Палявая кветка. *На лузе багата красак.* ‖ *памянш.-ласк.* **кра́сачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **кра́скавы**, -ая, -ае.

**КРАСНУ́ХА**, -і, *ДМ* -ну́се, *ж.* Заразная дзіцячая хвароба, якая суправаджаецца чырванаватай высыпкай на целе. ‖ *прым.* **красну́шны**, -ая, -ае.

**КРА́СНЫ**, -ая, -ае; -сен, -сна *і* -сна́ (нар.-паэт.). Прыгожы. *Не радзіся к., а радзіся шчасны* (з нар.).

**КРАСО́ЎКІ**, -со́вак, *адз.* красо́ўка, -і, *ДМ* -со́ўцы, *ж.* Шырока распаўсюджаны від спартыўнага абутку. ‖ *прым.* **красо́вачны**, -ая, -ае.

**КРАСУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *прыгажун.* ‖ *памянш.* **красу́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**КРАСУ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -су́нь, *ж.* Тое, што і *прыгажуня.*

**КРА́СЦІ**, кра́ду, кра́дзеш, кра́дзе; краў, кра́ла; кра́дзены; *незак., каго-што* і *без дап.* Прысвойваць чужое, быць злодзеем. ‖ *зак.* **укра́сці**, укра́ду, укра́дзеш, укра́дзе; укра́ў, -ра́ла; укра́дзены. ‖ *наз.* **крадзе́ж**, -дзяжу́, *м.*, **кра́жа**, -ы, *ж.* *і* **пакра́жа**, -ы, *ж.*

**КРА́СЦІСЯ**, кра́дуся, кра́дзешся, кра́дзецца; кра́ўся, кра́лася; *незак.* Употай прабірацца куды-н., стараючыся быць незаўважаным. *К. паўз агароды.*

**КРАТАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* (разм.). Нара крата.

**КРАТАВІ́ННЕ**, -я, *н.*, *зб.* (разм.). Кучкі зямлі, нарытыя кратом.

**КРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адтуліна на вяршыні вулкана, праз якую вывяргаецца лава, а таксама ўпадзіна, абкружаная кальцавымі валамі, у ландшафце Месяца і іншых планет. ‖ *прым.* **кра́тарны**, -ая, -ае.

**КРА́ТАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** Рухацца, скранацца з месца. *Машына кратаецца з месца.* **2.** Варушыцца. *У траве нешта кратаецца.* ‖ *зак.* **пакра́тацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**КРА́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго-што.* Дакранацца да каго-, чаго-н.; чапаць. *К. валасы.* **2.** *што* і *чым.* Рухаць, варушыць. *К. сена. К. фіранку. К. параненай рукой.* ‖ *зак.* **пакра́таць**, -аю, -аеш, -ае.

**КРА́ТНЫ**, -ая, -ае. У матэматыцы: які дзеліцца без астатку на які-н. лік. *Дзевяць — лік, кратны тром.* ‖ *наз.* **кра́тнасць**, -і, *ж.*

**КРАТО́ВЫ** *гл.* крот.

**КРА́ТЫ**, -аў. Металічная рашотка на вокнах, на дзвярах. *К. на дзвярах.* ◊ **За краты** — у турму (сесці, пасадзіць і пад.). ‖ *прым.* **кра́тавы**, -ая, -ае.

**КРА́ЎЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* (гіст.). У Рускай дзяржаве да 18 ст.: баярын, які ведаў царскім сталом, стольнікамі.

**КРАЎЧЫ́ХА**, -і, *ДМ* -чы́се, *мн.* -і, -чы́х, *ж.* **1.** Спецыялістка па шыцці адзення. **2.** Жонка краўца (разм.).

**КРАХ**, -у, *м.* **1.** Разарэнне, банкруцтва. *К. банка.* **2.** *перан.* Правал, поўная няўдача. *Пацярпець к.*

**КРАХТА́ЦЬ**, крахчу́, крэ́хчаш, крэ́хча; крахчы́ *і* **КРАКТА́ЦЬ**, кракчу́, крэ́кчаш, крэ́кча; кракчы́; *незак.* Утвараць міжвольна ціхія, адрывістыя гукі, стогны (ад болю, пры няёмкім становішчы і пад.). ‖ *аднакр.* **крахтану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **кракрану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **крахта́нне**, -я, *н.* *і* **кракта́нне**, -я, *н.*

**КРА́ЦІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўяўляе сабой краты. *Крацістая агароджа.* **2.** З кратамі. *Крацістае акно.*

**КРА́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Вадаплаўная птушка сямейства чаек, водзіцца па адложыстых узбярэжжах рэк, азёр і харчуецца рыбай.

**КРАЯВІ́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Агульны выгляд якой-н. мясцовасці. *Краявіды Полаччыны.* **2.** Малюнак, карціна, якая адлюстроўвае віды прыроды, а таксама апісанне прыроды ў літаратурных творах. *Краявіды ў творах Якуба Коласа.*

**КРАЯВЫ́** *гл.* край[1].

**КРАЯЗНА́ВЕЦ**, -на́ўца, *мн.* -на́ўцы, -на́ўцаў, *м.* Чалавек, які займаецца вывучэннем свайго краю, краязнаўствам.

**КРАЯЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Вывучэнне асобных мясцовасцей краіны з пункту гледжання іх геаграфічных, культурна-гістарычных, эканамічных, этнаграфічных асаблівасцей. ‖ *прым.* **краязна́ўчы**, -ая, -ае.

**КРОВА...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову «кроў», напр.: *кроваачышчальны, кровазварот, кровапапаўненне.*

**КРОВАЗВАРО́Т**, -у, *М* -ро́це, *м.* Беспрапынны рух крыві па сасудах крывяноснай сістэмы ў целе чалавека або жывёліны.

**КРОВАЗЛІЦЦЁ**, -я́, *н.* Зліццё крыві з пашкоджаных сасудаў у органы і тканкі. *К. ў мозг.*

**КРОВАЗМЯШЭ́ННЕ**, -я, *н.* Палавая сувязь паміж блізкімі сваякамі. ‖ *прым.* **кровазмяша́льны**, -ая, -ае.

**КРОВАПАДЦЁК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Сіняк ад падскурнага кровазліцця, выкліканага ўдарам і пад. ‖ *прым.* **кровападцёчны**, -ая, -ае.

**КРОВАПРАЛІ́ТНЫ**, -ая, -ае. Які суправаджаецца кровапраліццем. *Крова-*

*пралітная вайна.* ‖ *наз.* **кровапралі́тнасць**, -і, *ж.*

**КРОВАПРАЛІ́ЦЦЕ**, -я́, *н.* Забойства, масавая гібель людзей. *Пазбегнуць кровапраліцця.*

**КРОВАПУСКА́ННЕ**, -я, *н.* Спусканне з арганізма пэўнай колькасці крыві з лячэбнай мэтай. ‖ *прым.* **кровапуска́льны**, -ая, -ае.

**КРОВАСПЫНЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для спынення кровацячэння. *Кроваспыняльныя сродкі.*

**КРОВАТАЧЫ́ВЫ**, -ая, -ае. Такі, з якога выдзяляецца, цячэ кроў. ‖ *наз.* **кроватачы́васць**, -і, *ж.*

**КРОВАТАЧЫ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., краваточыць; *незак.* Выдзяляць кроў. *Рана пачала к.*

**КРОВАЦЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Выцяканне крыві з крывяносных сасудаў. *К. з вены.*

**КРО́ІЦЬ**, кро́ю, кро́іш, кро́іць; кро́ены; *незак., што.* **1.** Разразаць (матэрыю, футра і пад.) на кавалкі пэўнай велічыні, выразаць па мерцы часткі чаго-н. *К. сукно. К. сукенку.* **2.** Адразаць часткі ад цэлага або разразаць на кавалкі чым-н. вострым. *К. хлеб. К. лыка.* **3.** *перан.* Прыносіць каму-н. душэўны боль (разм.). *К. сэрца.* ‖ *зак.* **вы́краіць**, -краю, -краіш, -краіць; -краены (да 1 знач.) *і* **скро́іць**, скро́ю, скро́іш, скро́іць; скро́ены (да 1 знач.). ‖ *наз.* **кро́йка**, -і, *ДМ* кро́йцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.) *і* **крой**, -ю, *м.* (да 1 і 2 знач.). *Курсы кройкі і шыцця адзення; прым.* **кро́ільны**, -ая, -ае (спец.). *К. стол.*

**КРОЙ**, -ю, *м.* **1.** *гл.* кроіць. **2.** Фасон, пакрой (спец.). *Касцюм прамога крою.*

**КРОК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Рух нагой пры хадзьбе, бегу, а таксама адлегласць ад нагі да нагі пры такім руху. *Дзіця зрабіла першыя крокі. Ступіць на к. уперад.* **2.** толькі *мн.* Гукі, што ўтвараюцца пры хадзьбе. *У калідоры чуліся гулкія крокі.* **3.** звычайна *адз.* Тэмп руху пры хадзьбе. *Прыбаўце кроку! Шпаркім крокам.* **4.** *перан.* Дзеянне, учынак. *Рашучы к. Няправільны к.* **5.** *перан.* Этап у развіцці чаго-н. *К. у развіцці навукі. Новы к. у асваенні касмічнай прасторы.* ◊ **Адзін крок** — зусім блізка. **За два (тры** і пад.**) крокі** — вельмі блізка. **Кроку не ступіць** *без каго-, чаго-н.* — не абысціся без чыёй-н. дапамогі. **На кожным кроку** — усюды. **Не даваць кроку ступіць** — не даваць самастойна дзейнічаць. **Першы крок** — самы пачатковы перыяд якіх-н. дзеянняў або дзейнасці.

**КРОКАМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння пройдзенай адлегласці ў кроках. ‖ *прым.* **крокаме́рны**, -ая, -ае.

**КРО́КВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Апора, аснова для страхі — два брусы, злучаныя верхнімі канцамі пад вуглом, а ніжнімі прымацаваныя да бэлек або да верхняга вянца падоўжных сцен. ‖ *прым.* **кро́квенны**, -ая, -ае.

**КРОЛЬ**, -ю, *м.* Стыль спартыўнага плавання, пры якім робяцца пераменныя грабкі паўсагнутымі рукамі. *Плысці кролем.*

**КРО́НА**[1], -ы, *мн.* -ы, крон, *ж.* Верхняя галіністая частка дрэва з яго лісцем. *Пад кронамі дубоў.*

**КРО́НА**[2], -ы, *мн.* -ы, крон, *ж.* Грашовая адзінка ў Чэхіі, Даніі, Нарвегіі, Швецыі і некаторых іншых краінах Заходняй Еўропы.

**КРОП**, -у, *м.* Аднагадовая агародная травяністая расліна сямейства парасонавых з вострым прыемным пахам; ужыв. як прыправа да ежы. ‖ *прым.* **кро́павы**, -ая, -ае.

**КРО́ПЕЛЬНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** Прыбор, які падае́ вадкасць кроплямі (лякарства ў вену, ваду ў расліны і пад.). **2.** Бутэлечка з жалабком для налівання лякарства кроплямі. **3.** Тое, што і *піпетка.*

**КРО́ПЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. У выглядзе кропель. *Кропельнае ўвядзенне лякарства.*

**КРО́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* **1.** След ад дакранання, уколу чым-н. вострым (кончыкам алоўка, іголкі і пад.); маленькая круглая плямка. *Тканіна ў кропкі.* **2.** Знак прыпынку (.), які аддзяляе сказы, а таксама ўжыв. пры скарочаным напісанні слоў, напрыклад: і пад., і інш. *К. з коскай* (;). *Дзве кропкі, або двукроп'е* (:). *Тры кропкі, або шматкроп'е* (...). **3.** Месца, пункт у сістэме, сетцы якіх-н. пунктаў, дзе размешчана што-н. *Гандлёвая к.* (магазін, кіёск і пад.). *Асвятляльная к.* **4.** *у знач. вык.* Досыць, канец (разм.). *Ідзі — і к.!* ○ **Агнявая кропка** — кулямёт, мінамёт, дот і пад., размешчаныя на агнявой пазіцыі. ◊ **Біць у адну кропку** — накіроўваць свае дзеянні на што-н. адно. **Кропка ў кропку** (разм.) — якраз, дакладна. **Папасці ў самую кропку** (разм.) — якраз так, як трэба. **Ставіць кропкі над «і»** — удакладняць, высвятляць, не пакідаючы нічога недаказанага. ‖ *прым.* **кро́пкавы**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**КРО́ПЛЯ**, -і, *мн.* -і, -пель, *ж.* **1.** Маленькая акруглая часцінка якой-н. вадкасці. *К. вады. Кроплі дажджу.* **2.** *мн.* Разведзенае на чым-н. лякарства, якое прымаецца па пэўнай колькасці такіх часцінак. *Вочныя кроплі. К. ў нос.* **3.** *адз., перан., чаго.* Самая нязначная колькасць чаго-н. (разм.). *Малака ў бляшанцы к.* ◊ **Да (апошняй) кроплі** — усё без астатку выпіць, расходаваць, аддаць і пад. **Да апошняй кроплі крыві** — ахвяруючы жыццём, змагацца, біцца, абараняцца. **Кропля за кропляй** — паступова, патрошку. **Кропля ў моры** — вельмі нязначная колькасць у параўнанні з чым-н. вялікім. **Ні кроплі** — ніколькі, ані. **Ні кроплі ў рот не браць** — зусім не піць алкагольных напіткаў. **Як дзве кроплі вады** — абсалютна, поўнасцю падобны, супадае. ‖ *прым.* **кро́пельны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**КРОС**, -у, *м.* Спартыўны бег або гонкі па перасечанай мясцовасці з пераадоленнем перашкод. ‖ *прым.* **кро́савы**, -ая, -ае. *Кросавая траса.*

**КРО́СНЫ**, красён *і* кро́снаў. **1.** Ручны ткацкі станок. *Паставіць к.* **2.** Ніцяная аснова, якая навіваецца на навой станка. ‖ *памянш.* **красёнцы**, -аў.

**КРОТ**, крата́, *мн.* краты́, крато́ў, *м.* Невялікая млекакормячая жывёліна атрада насякомаедных, якая жыве пад зямлёй, а таксама футра гэтай жывёліны. *Каўнер з крата.* ‖ *прым.* **крато́вы**, -ая, -ае.

**КРОЎ**, крыві́, *Т* кро́ўю *і* крывёй, *ж.* **1.** Чырвоная вадкасць, якая рухаецца па крывяносных сасудах арганізма, жывіць яго клеткі і забяспечвае абмен рэчываў. *Артэрыяльная к.* **2.** *перан.* Блізкае кроўнае сваяцтва. *Адной крыві.* **3.** Пра пароду жывёл. *Бульдог чыстай крыві.* ◊ **Гарачая кроў** — пра тэмпераментнага чалавека. **Кроў за кроў** — помсціць забойствам за забойства. **Кроў з малаком** — пра чалавека з румяным свежым тварам. **Кроў іграе (кіпіць)** *у каго* — пра багацце жыццёвых сіл, энергіі. **Кроў ледзянее (стыне) (у жылах)** — пра пачуццё жаху, моцнага перапуду. **Льецца (праліваецца) кроў** — пра масавае забойства, звычайна ў час вайны. **Плоць ад плоці, кроў ад крыві** (кніжн.) — аб тым, што створана ўласнай працай і клопатамі. **Псаваць кроў** *каму* — псаваць настрой, раздражняць. **Сэрца кроўю абліваецца** — цяжка каму-н. ад душэўнага болю, пачуцця спагады, жалю. **Умыцца кроўю** — быць збітым. ‖ *прым.* **крывяны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.). *К. ціск* (ціск крыві ў сасудах).

**КРО́ЎНЫ** *і* (разм.) **КРЭ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Родны па крыві; які паходзіць ад адных продкаў. *К. брат. Кроўная радня.* **2.** *перан.* Вельмі блізкі, цесны, моцны, непарушны. *Кроўная сувязь пісьменніка з народам. Кроўна* (прысл.) *зацікаўлены ў чым-н.* ◊ **Кроўная крыўда** — цяжкая, якая глыбока кранае. **Кроўная помста** — помста забойствам за забойства сваяка як перажытак родавага ладу. **Кроўныя грошы** (разм.) — грошы, нажытыя сваёй працай. ‖ *наз.* **кро́ўнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.) *і* **крэ́ўнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**КРО́ХКІ**, -ая, -ае. Які лёгка крышыцца, развальваецца на часткі; ломкі. *Крохкае пячэнне. Крохкае дрэва.* ‖ *наз.* **кро́хкасць**, -і, *ж.*

**КРО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* **1.** Ісці мерным крокам. *К. па вуліцы.* **2.** *перан.* Развівацца, рухацца ў пэўным напрамку. *К. у шчаслівую будучыню.*

**КРО́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Маленькая, дробная часцінка чаго-н. *К. пячэння. Хлебныя крошкі.* **2.** *зб.* Сыпучае рэчыва з дробных, раскрышаных часцінак чаго-н. (спец.). *Мармуровая к.* ◊ **Да крошкі** — поўнасцю, зусім расходаваць, аддаць і пад. **Ні крошкі** — няма ніколькі. ‖ *памянш.* **кро́шачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**КРУГ**, -а, *М* кру́зе, *мн.* кругі́, -о́ў, *м.* **1.** Частка плоскасці, абмежаваная акружнасцю, а таксама сама акружнасць. **2.** Круглы ўчастак якой-н. паверхні. **3.** Прадмет, падобны па форме на круг ці

кола. *Выратавальны к.* **4.** *перан., чаго.* Пра замкнуты ланцуг дзеянняў, спраў, працэсаў, якімі завяршаецца што-н. *Завяршыць першы к. шахматнага спаборніцтва.* **5.** *перан., чаго.* Тое, што і *кола* (у 4 знач.). *К. дзейнасці.* **6.** *каго* або *які.* Сукупнасць, група людзей з агульнымі інтарэсамі, сувязямі; кола (у 5 знач.). *К. знаёмых. Сямейны к.* **7.** Больш далёкі, абходны шлях, дарога і пад. (разм.). *Пайшоў не той сцежкай і зрабіў вялікі к.* ◊ **Кругі пад вачамі** *ў каго* — сінякі пад вачамі ў каго-н. ад хваробы, стомы, бяссонніцы. **Кругі перад вачамі (у вачах)** — цямнее ў вачах ад слабасці, стомы і пад. **На круг** (разм.) — па прыблізных падліках. ‖ *памянш.* **кружо́к**, -жка́, *мн.* -жкі́, -жко́ў, *м.* (да 1—3 знач.). ‖ *прым.* **кругавы́**, -а́я, -о́е (да 1—3 знач.) і **кружны́**, -а́я, -о́е (да 7 знач.). *Кругавыя працэсы. Кружная дарога.* ○ **Кругавая абарона** — лінія абароны, якая ўтварае замкнуты ланцуг вакол якога-н. пункта. ◊ **Кругавая парука** — а) адказнасць усіх за кожнага і кожнага за ўсіх; б) узаемнае ўкрывальніцтва, узаемная выручка ў нядобрых справах.

**КРУГААБАРО́Т**, -у, *М* -ро́це, *м.* Працэс, які заканчваецца зваротам да зыходнага становішча. *К. капіталу.*

**КРУГАВАРО́Т**, -у, *М* -ро́це, *м.* **1.** Працэс, які бесперапынна перыядычна паўтараецца. *К. вады ў прыродзе.* **2.** Увогуле бесперапынны рух, змяненне чаго-н. *К. жыцця. К. падзей.*

**КРУГАВЫ́** *гл.* круг.

**КРУГАГЛЯ́Д**, -а, *М* -дзе, *м.* **1.** Прастора, якую можна ахапіць позіркам. **2.** *перан.* Аб'ём ведаў, інтарэсаў. *Пашыраць свой к.*

**КРУ́ГАМ**, *прысл.* У форме круга, утвараючы круг. *Стаць вакол стала к.*

**КРУГАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Падобны па форме на круг. *Кругападобная дзялянка лесу.* ‖ *наз.* **кругападо́бнасць**, -і, *ж.*

**КРУГАСВЕ́ТНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з падарожжам, паездкай вакол зямнога шара. *Кругасветнае плаванне.*

**КРУГЛАГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. Які працягваецца ўвесь год. *К. адкорм свіней. Круглагадовая работа экспедыцыі.*

**КРУГЛАСУ́ТАЧНЫ**, -ая, -ае. Які працягваецца бесперапынна на працягу сутак. *Кругласутачнае нагляданне.*

**КРУГЛАТВА́РЫ**, -ая, -ае. З круглым тварам. *К. юнак.* ‖ *наз.* **круглатва́расць**, -і, *ж.*

**КРУГЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Станавіцца круглым (у 1 знач.), круглейшым. *Вочы ад здзіўлення круглеюць.* **2.** Таўсцець, папраўляцца. ‖ *зак.* **акругле́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е *і* **пакругле́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**КРУГЛІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -лі́н, *ж.* (разм.). Акругласць формы.

**КРУ́ГЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае форму круга, шара, кола або падобны да іх па форме. *К. мячык. К. стол.* **2.** Поўны, абсалютны (разм.). *Круглая сірата. К. выдатнік.* **3.** Вылічаны без дробавых адзінак. *Круглыя лічбы.* **4.** Увесь, цэлы (у спалучэнні са словамі год, дзень, суткі). ◊ **Круглая (кругленькая) сума** — пра вялікія грошы. ‖ *памянш.-ласк.* **кру́гленькі**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.; разм.). ‖ *наз.* **круглата́**, -ы́, *ДМ* -лаце́, *ж.* (да 1 знач.).

**КРУГЛЯ́ВЫ**, -ая, -ае. Круглаваты, акруглены. *К. твар.* ‖ *наз.* **кругля́васць**, -і, *ж.*

**КРУГЛЯ́К**, -а́ *і* -у́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** -а́. Тоўстае кароткае палена акруглай формы. *Адрэзаць пару круглякоў ад бервяна.* **2.** -у́, *зб.* Нячэсанае круглае бярвенне як будаўнічы матэрыял (разм.). *Хата з тоўстага кругляку.*

**КРУГО́М**, *прысл.* і *прыназ.* **1.** *прысл.* З усіх бакоў. *К. лес. К. людзі.* **2.** *прысл.* Робячы кругавы рух. *Абляцець к. Павярнуцца к.* **3.** *прысл.* Поўнасцю. *К. вінавата.* **4.** *прыназ. з Р.* Вакол каго-, чаго-н. *К. хаты растуць кветкі. К. лесу поле. Абысці к. стала.*

**КРУЖА́ЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* У будаўніцтве: драўляная або металічная дуга, па якой выкладваюць скляпенне, арку і пад.

**КРУЖНЫ́** *гл.* круг.

**КРУЖЫ́ЦЦА**, кружу́ся, кру́жышся, кру́жыцца; *незак.* **1.** Рухацца па крузе. *К. ў вальсе.* **2.** Лятаючы, рабіць кругі. *Бусел кружыцца над гняздом. Самалёт кружыўся над горадам.* **3.** Узнімаць снег, пыл, месці (пра мяцеліцу, завіруху і пад.). *Кружыцца мяцеліца.* ◊ **Галава кружыцца** *ў каго* — а) пра галавакружэнне; б) хто-н. зазнаўся, страціў здольнасць цвяроза разважаць. ‖ *наз.* **кружэ́нне**, -я, *н.*

**КРУЖЫ́ЦЬ**, кружу́, кру́жыш, кру́жыць; кру́жаны; *незак.* **1.** *каго-што.* Застаўляць рухацца па крузе. *К. у танцы каго-н.* **2.** Тое, што і *кружыцца* (у 2 знач.). *Бусел кружыў над старой ліпай.* **3.** Блукаць, хадзіць, збіўшыся з дарогі. *Тры гадзіны кружыла па сасонніку.* **4.** Тое, што і *кружыцца* (у 3 знач.). *На вуліцы кружыла мяцеліца.* ‖ *наз.* **кружэ́нне**, -я, *н.*

**КРУЖЭ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -ак, *ж.* Дыск з гукавым запісам для прайгравальніка, патэфона і пад.

**КРУІ́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Падарожжа па вадзе, звычайна марское. **2.** Турыстычная паездка. *К. па Еўропе.* ‖ *прым.* **круі́зны**, -ая, -ае.

**КРУК**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Металічны ці драўляны стрыжань з загнутым тупым канцом. *Павесіць паліто на к.* **2.** Кароткі металічны прут, загнуты на адным канцы і прымацаваны другім канцом да каната, вяроўкі і пад. для падчэплівання і перамяшчэння грузаў. *К. пад'ёмнага крана.* **3.** Зашчэпка на дзвярах у форме загнутага на канцы металічнага прута, які накідваецца на прабой. *Узяць дзверы на к.* **4.** Лішняя адлегласць пры хадзьбе кружным шляхам. ◊ **Крукам галавы (носа) не дастаць** (разм., неадабр.) — пра вельмі ганарыстага чалавека. **Сагнуць у крук** *каго* (разм.) — прымусіць падпарадкавацца. **Сядзець крукам** (разм.) — вельмі старанна рабіць што-н. (звычайна седзячы). ‖ *прым.* **крукавы́**, -а́я, -о́е (спец.).

**КРУМКА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Вялікая чорная птушка сямейства крумкачовых, якая жывіцца пераважна падлай; груган. ‖ *прым.* **крумкачо́вы**, -ая, -ае *і* **крумкачы́ны**, -ая, -ае. *Сямейства крумкачовых* (наз.).

**КРУМКАЧАНЯ́** *і* **КРУМКАЧАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Птушаня крумкача.

**КРУП**, -у, *м.* Вострае запаленне гартані, а таксама некаторых іншых органаў дыхання. ‖ *прым.* **крупо́зны**, -ая, -ае. *Крупознае запаленне лёгкіх.*

**КРУПАДЗЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Машына для вырабу круп, а таксама невялікае прадпрыемства, дзе вырабляюць крупы.

**КРУПЕ́НЯ**, -і, *ж.* Тое, што і *крупнік.*

**КРУПІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -пін, *ж.* Асобнае зерне круп. ◊ **Крупіна за крупінай ганяецца з дубінай** (разм., жарт.) — пра вельмі рэдкую страву. ‖ *памянш.* **крупі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**КРУПІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* крупіна. **2.** Дробная часцінка чаго-н. *К. снегу.* **3.** *перан.* Вельмі малая колькасць чаго-н. *Хоць бы к. надзеі. Ні крупінкі праўды.*

**КРУ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* **1.** *зб.* Здробленае ачышчанае ад шалупіння зерне пшаніцы як прамежкавы прадукт пры перапрацоўцы яе ў гатункавую муку. **2.** *зб.* Тое, што і *крупы* (у 2 знач.); крупкі.

**КРУ́ПНІК**, -у, *м.* Крупяны суп, крупеня.

**КРУПО́ЗНЫ** *гл.* круп.

**КРУПЧА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Кабан, хворы на трыхінелёз.

**КРУПЧА́СТЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з крупінак, з дробных часцінак. *К. мёд.*

**КРУПЧА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Самы высокі гатунак пшанічнай мукі.

**КРУ́ПЫ**, круп. **1.** Прадукт харчавання з цэлых або сечаных зярнят розных культур. *Грэчневыя к. Зварыць кашу з манных круп.* **2.** *перан.* Снег у выглядзе невялікіх шарападобных зярнят. ‖ *памянш.* **кру́пкі**, -пак. ‖ *прым.* **крупяны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**КРУТАВЕ́РЦЬ**, -і, *ж.* (разм.). **1.** Дрэннае надвор'е з завірухай, мяцеліцай. *На дварэ к.* **2.** Вірлівая вада, паводка.

**КРУТАДУ́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *крывадушнік.*

**КРУТАСВЕ́Т**, -а, *М* -све́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Пранырлівы, жулікаваты чалавек.

**КРУТНУ́ЦЦА** *і* **КРУТАНУ́ЦЦА** *гл.* круціцца.

**КРУТНУ́ЦЬ** *і* **КРУТАНУ́ЦЬ** *гл.* круціць.

**КРУТНЯ́**, -і́, *ж.* **1.** Падман, махлярства. *Займацца крутнёй.* **2.** Справа, якая патрабуе вялікіх турбот і многіх клопатаў.

**КРУТЫ́**[1], -а́я, -о́е. **1.** Абрывісты. *К. бераг ракі.* **2.** З рэзкім, раптоўным змяненнем напрамку. *Крутыя павароты на дарогах.* **3.** *перан.* Значны, рашучы. *Крутыя змены.* **4.** Суровы, строгі. *К. характар.* ‖ *наз.* **кру́тасць**, -і, *ж.* *і* **круцізна́**, -ы́, *ж.* (да 1 знач.).

**КРУТЫ́**[2], -а́я, -о́е. **1.** Даведзены варкай, замешваннем да пэўнай ступені шчыльнасці, гушчыні. *Крутое яйцо. Крутое цеста.* **2.** Туга звіты, скручаны. *Крутая пража.*

**КРУХМА́Л**, -у, *м.* Белы парашок без смакавых якасцей, які атрымліваецца з некаторых раслін (прымяняецца ў харчовай, хімічнай і іншай прамысловасці). *Бульбяны к. Кукурузны к.* ‖ *прым.* **крухма́льны**, -ая, -ае. *К. завод.*

**КРУХМА́ЛІСТЫ**, -ая, -ае. Які ўтрымлівае ў сабе многа крухмалу. ‖ *наз.* **крухма́лістасць**, -і, *ж.*

**КРУХМА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *незак., што.* Мачыць у крухмальным растворы для надання цвёрдасці, глянцу. *К. бялізну. К. ручнікі.* ‖ *зак.* **накрухма́ліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены. ‖ *наз.* **крухма́ленне**, -я, *н.*

**КРУЦЕ́ЛЬ**, -цяля́, *мн.* -цялі́, -цялёў, *м.* (разм.). Хітрун, махляр. ‖ *ж.* **круце́лька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек. ‖ *прым.* **круце́льскі**, -ая, -ае.

**КРУЦЕ́ЛЬСТВА**, -а, *н.* (разм.). Паводзіны, дзеянні круцяля; махлярства, ашуканства. *Займацца круцельствам.*

**КРУЦЁЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). **1.** Назва розных прыстасаванняў, прадметаў, якія круцяцца. **2.** Легкадумная, ветраная жанчына. ‖ *прым.* **круцёлачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КРУЦІЗНА́**, -ы́, *ж.* **1.** *гл.* круты[1]. **2.** Крутое месца, абрыў. *Па такой круцізне цяжка падняцца.*

**КРУЦІ́ЦЦА**, кручу́ся, кру́цішся, кру́ціцца; *незак.* **1.** Вярцецца па крузе або вакол сваёй восі. *Свердзел круціцца.* **2.** Быць ахопленым віхравым рухам; кружыцца. *Снег круціўся ля страхі. У паветры круціўся пыл.* **3.** Пастаянна быць дзе-н., ля каго-, чаго-н. (разм.). *Пастаянна к. ля магазіна. Дзіця круціцца ля бацькі.* **4.** Неспакойна паварочвацца то ў адзін, то ў другі бок; вярцецца. *К. на месцы.* **5.** *перан.* Быць у пастаянных клопатах, турботах (разм.). *Цэлы дзень кручуся на кухні.* **6.** Хітрыць, выкручвацца (разм.). *Як ні круціся, а праўда ёсць праўда.* **7.** Быць у любоўных адносінах з кім-н.; любіцца (разм.). ‖ *аднакр.* **крутну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся *і* **крутану́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся (да 1 знач.). ‖ *наз.* **кручэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**КРУЦІ́ЦЬ**, кручу́, кру́ціш, кру́ціць; кру́чаны; *незак.* **1.** *каго-што.* Вярцець па крузе. *К. сячкарню. К. кран.* **2.** *чым.* Паварочваць з боку ў бок. *К. галавой.* **3.** *што.* Звіваючы, вырабляць, скручваць што-н. *К. перавяслы. К. папяросу.* **4.** *каго-што.* Звязваць, сцягваць. *К. рукі назад.* **5.** *каго-што* і *без дап.* Уздымаючы, прыдаваць віхравы рух чаму-н. *Вецер круціць пыл. Мяцеліца круціць.* **6.** Хітрыць, не даваць прамога адказу (разм.). *Гэты чалавек праўду не гаворыць, а круціць.* **7.** Караючы, цягаць за вушы, валасы (разм.). *К. сына за вуха.* **8.** *перан.* Распараджацца па-свойму, камандаваць кім-н. *Мужам круціла так, як хацела* (разм.). **9.** *з кім.* Быць у любоўных адносінах з кім-н. (разм.). **10.** *што.* Свідраваць дзіркі ў чым-н. **11.** *перан.*, звычайна *безас.* Прычыняць рэзкі боль. *Цэлы дзень круціць, усё ломіць.* ‖ *зак.* **скруці́ць**, скручу́, скру́ціш, скру́ціць; скру́чаны (да 3 і 4 знач.). ‖ *аднакр.* **крутну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **крутану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **кручэ́нне**, -я, *н.* (да 1, 3, 5, 8 і 9 знач.). ‖ *прым.* **круці́льны**, -ая, -ае (да 3 знач.; спец.). *Круцільная машына.*

**КРУ́ЧА**, -ы, *мн.* -ы, круч *і* -аў, *ж.* Круты спуск, абрыў.

**КРУ́ЧАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Зроблены скручваннем. *Кручаная пража. К. абаранак.* **2.** Спіралепадобны, віты. *Кручаная лесвіца.* **3.** Хворы на шаленства (пра жывёл; разм.). *К. сабака.* **4.** *перан.* Заблытаны, неспакойны. *К. лёс. Кручаная доля.*

**КРУЧКАТВО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (неадабр.). Чалавек, схільны да кручкатворства. ‖ *ж.* **кручкатво́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **кручкатво́рскі**, -ая, -ае.

**КРУЧКАТВО́РСТВА**, -а, *н.* (неадабр.). Канцылярская валакіта, цяганіна, бюракратычныя прыдзіркі.

**КРУЧО́К**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* **1.** Металічнае прыстасаванне з загібам на адным канцы для розных мэт. *Дзвярны к. Рыбалоўны к.* **2.** Росчырк, завіток на пісьме. *Пісаць з кручкамі.* **3.** *перан.* Прыдзірка, зачэпка да каго-н. (разм.). **4.** Тое, што і *кручкатвор* (неадабр.). **5.** Мера гарэлкі, роўная 250 г (уст.). ‖ *прым.* **кручко́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **кручо́чны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**КРУЧЭ́ННЕ** *гл.* круціць, круціцца.

**КРУ́ШНЯ**, -і, *мн.* -і, -шань *і* -шняў, *ж.* (разм.). Куча камення.

**КРУШО́Н**, -у, *м.* **1.** Сумесь белага вінаграднага віна з ромам або каньяком з дабаўленнем свежых фруктаў. **2.** Прахаладжальны фруктовы напітак. *У такую спёку шкляначка крушону выратавала б душу ад пакуты.* ‖ *прым.* **крушо́нны**, -ая, -ае.

**КРУШЫ́НА**, -ы, *ж.* Невялікае лісцевае дрэва сямейства крушынавых з чорнымі неядомымі ягадамі, а таксама слабіцельная настойка з кары гэтага дрэва. ‖ *прым.* **крушы́навы**, -ая, -ае. *К. куст. Сямейства крушынавых* (наз.).

**КРУШЫ́ННІК**, -у, *м.* Зараснік крушыны.

**КРУШЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Няшчасны выпадак, катастрофа (цягніка, судна і пад.). *Пацярпець к.* **2.** *перан.* Гібель, крах. *К. надзей і планаў.*

**КРЫВА...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову «крывы», напр.: *крывабокі, крывалінейны, крываногі.*

**КРЫВАБО́КІ**, -ая, -ае. Са скрыўленым бокам або бакамі. ‖ *наз.* **крывабо́касць**, -і, *ж.*

**КРЫВА́ВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -віцца; *незак.* Выдзяляць кроў; кроватачыць. *Рана крывавіцца.*

**КРЫВА́ВІЦЬ**, -ва́ўлю, -ва́віш, -ва́віць; *незак.* **1.** *каго-што.* Біць, разбіваць да крыві. *К. ногі аб калючкі.* **2.** Тое, што і *крывавіцца* (разм.). *Рана крывавіць.*

**КРЫВА́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Напоўнены, пакрыты крывёй, з прымессю крыві. *К. мазоль. Крывавая рана.* **2.** Які суправаджаецца кровапраліццем, гібеллю многіх людзей. *Крывавае злачынства. К. бой.* **3.** Які ўчыніў многа забойстваў. *К. кат.* **4.** *перан.* Вельмі пакутлівы, цяжкі. *Крывавая праца. К. пот.* ‖ *наз.* **крыва́васць**, -і, *ж.*

**КРЫВАДУ́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Крывадушны, няшчыры, ілжывы чалавек. ‖ *ж.* **крываду́шніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **крываду́шніцкі**, -ая, -ае.

**КРЫВАДУ́ШНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Паступаць няшчыра, праяўляць у паводзінах ілжывасць, прытворства. ‖ *наз.* **крываду́шнічанне**, -я, *н.*

**КРЫВАДУ́ШНЫ**, -ая, -ае. Поўны крывадушша, няшчыры, ілжывы. *К. чалавек.* ‖ *наз.* **крываду́шнасць**, -і, *ж.*

**КРЫВАДУ́ШША**, -а, *н.* Неадпаведнасць слоў, учынкаў шчырым пачуццям, перакананням; няшчырасць.

**КРЫВАЖЭ́РНЫ**, -ая, -ае. Які прагне крыві, забойстваў; жорсткі, люты. *К. драпежнік. К. вораг.* ‖ *наз.* **крыважэ́рнасць**, -і, *ж.*

**КРЫВАПІ́ВЕЦ**, -пі́ўца, *мн.* -пі́ўцы, -пі́ўцаў, *м.* (пагард.). Бязлітасны, жорсткі чалавек, прыгнятальнік.

**КРЫВАСМО́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Кажан, які жывіцца крывёю жывёл (жыве ў Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыцы). **2.** *перан.* Тое, што і *крывапівец* (пагард.).

**КРЫВАСО́СНЫ**, -ая, -ае. Які адсмоктвае, адцягвае кроў. *Крывасосныя насякомыя.*

**КРЫВАТО́ЛКІ**, -аў. Неабгрунтаваныя, няправільныя разважанні, плёткі.

**КРЫВА́ЎКА**, -і, *ДМ* -ва́ўцы, *ж.* (разм.). Крывавы панос; дызентэрыя. ‖ *прым.* **крыва́вачны**, -ая, -ае.

**КРЫВА́ЎНІК**, -у, *м.* Шматгадовая травяністая лекавая расліна з пёрыстымі рассечанымі лістамі і моцным пахам. ‖ *прым.* **крыва́ўнікавы**, -ая, -ае.

**КРЫВАХА́РКАННЕ**, -я, *н.* Выдзяленне крыві з макротай пры кашлі.

**КРЫВАЦЁК**, -у, *м.* Выцяканне крыві з крывяносных сасудаў. *Унутраны к.*

**КРЫВАШЫ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Дэталь механізма, якая служыць для ператварэння вярчальнага руху ў паступальны і наадварот. ‖ *прым.* **крываршы́пны**, -ая, -ае.

**КРЫВЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* (разм.). Станавіцца крывым. ‖ *зак.* **акрыве́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**КРЫВІЗНА́**, -ы́, *ж.* **1.** *гл.* крывы. **2.** Крывое, сагнутае месца. *К. стала.*

**КРЫВІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). **1.** Кропелька крыві. **2.** Пра роднага па крыві. *Гэта ж мая к.* ◊ **Ні крывінкі ў твары** — пра вельмі бледнага чалавека.

**КРЫВІ́ЦКІ** *гл.* крывічы.

**КРЫВІ́ЦЦА**, крыўлюся, кры́вішся, кры́віцца; *незак.* **1.** Станавіцца крывым, перакрыўленым. *Паркан пачаў к.* **2.** Крывіць губы, рот і пад., выказваючы нязгоду з чым-н., незадавальненне чым-н. ‖ *зак.* **пакрыві́цца**, -крыўлюся, -кры́вішся, -кры́віцца (да 1 знач.) *і* **скрыві́цца**, скрыўлюся, скры́вішся, скры́віцца (да 2 знач.).

**КРЫВІ́ЦЬ**, крыўлю́, кры́віш, кры́віць; кры́ўлены; *незак., што.* **1.** Рабіць крывым, перакошаным, выгнутым. *К. абцасы.* **2.** Перакошваць у грымасе (пра твар, губы, рот і пад.) *К. губы.* ◊ **Крывіць душой** — гаварыць няшчыра, не так, як падказвае сумленне. ‖ *зак.* **пакрыві́ць**, -крыўлю́, -кры́віш, -кры́віць; -кры́ўлены *і* **скрыві́ць**, скрыўлю́, скры́віш, скры́віць; скры́ўлены.

**КРЫВІЧЫ́**, -о́ў, *адз.* крыві́ч, -а́, *м.* Усходнеславянскае племяннное аб'яднанне ў 6—10 стст., якое займала тэрыторыю ў вярхоўях Заходняй Дзвіны, Дняпра і Волгі. *Полацкія к.* ‖ *прым.* **крыві́цкі**, -ая, -ае. *Крывіцкія курганы.*

**КРЫВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Выгнуты, не прамы. *Крывая дошка. К. цвік. Крывога дрэва не выпрастаеш* (прыказка). **2.** Ненармальны, пакалечаны (пра часткі цела). *Крывая рука.* **3.** З пашкоджанай нагой (нагамі); кульгавы (разм.). ‖ *наз.* **крывізна́**, -ы́, *ж.* (да 1 знач.).

**КРЫВЯНІ́СТЫ**, -ая, -ае. З кроўю, які змяшчае ў сабе пэўную колькасць крыві; з кроўю. *Крывяністае мяса.* ‖ *наз.* **крывяні́стасць**, -і, *ж.*

**КРЫВЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Крывяная каўбаса.

**КРЫВЯНО́СНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для кровазвароту. *Крывяносныя сасуды.*

**КРЫВЯНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* кроў. **2.** Які складаецца з крыві. *Крывяная пляма.* **3.** Прыгатаваны з крыві, з крывёю. *Крывяная каўбаса.*

**КРЫ́ГА**[1], -і, *ДМ* кры́зе, *мн.* -і, крыг, *ж.* Ільдзіна на рацэ, на возеры.

**КРЫ́ГА**[2], -і, *ДМ* кры́зе, *мн.* -і, крыг, *ж.* Рыбалоўная сетка, якой ловяць рыбу ўдвух, ідучы бродам.

**КРЫГАЛО́М**, -у, *м.* **1.** Перыяд, калі пачынае ламацца лёд на рэках. **2.** Збудаванне для засцярогі моста ад крыгаходу.

**КРЫГАХО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Рух лёду па цячэнні рэк вясной (у час раставання) і восенню (у час замярзання). ‖ *прым.* **крыгахо́дны**, -ая, -ае.

**КРЫЖ**, -а, *мн.* крыжы́, -о́ў, *м.* **1.** Прадмет хрысціянскага культу ў выглядзе вертыкальнага стрыжня з адной або дзвюма папярочнымі перакладзінамі, на якім, згодна з Евангеллем, быў распяты Ісус Хрыстос; сімвал выратавання і збавення чалавецтва. *К. на купале царквы. Нацельны к. Крыжы на магілах.* **2.** У хрысціян: малітоўны жэст правай рукой, які сімвалізуе такі прадмет. **3.** Фігура з дзвюх ліній, якія перасякаюцца пад прамым вуглом. *Намаляваць к.* **4.** Знак узнагароды, ордэн у форме такой фігуры. *Георгіеўскі к.* **5.** Ніжняя частка хрыбетніка, якая складаецца з пяці пазванкоў, злучаных з касцямі таза (спец.). **6.** *перан., адз.* Пра цяжкі лёс, які выпаў на чыю-н. долю. *Цярпліва зносіць к. пакут.* ○ **Таварыства Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца** — арганізацыя для аказання дапамогі ваеннапалонным, хворым, раненым, пацярпелым у вайну. ◊ **Несці крыж** — цярпліва пераносіць пакуты, выпрабаванні. **Ставіць крыж** *на кім-чым* (разм.) — лічыць каго-, што-н. скончаным, больш не існуючым; траціць усякую надзею на каго-, што-н. ‖ *памянш.* **кры́жык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1, 3 і 4 знач.). ‖ *прым.* **крыжо́вы**, -ая, -ае (да 1—5 знач.) *і* **крыжавы́**, -а́я, -о́е (да 5 знач.; спец.). *Крыжовы шлях. Крыжавая косць.*

**КРЫЖАВА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Гульня-задача, у якой фігуру з перакрыжаванымі радамі клетак патрэбна запоўніць літарамі так, каб па вертыкалі і гарызанталі атрымаліся патрэбныя словы; красворд. ‖ *прым.* **крыжава́начны**, -ая, -ае.

**КРЫЖАВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Размешчаны крыж-накрыж. *Крыжаваная рыфма* (цераз радок). **2.** *перан.* Які вядзецца адразу з некалькіх бакоў; перакрыжаваны. *К. агонь.*

**КРЫЖАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -жу́ецца; *незак.* Размяшчацца крыж-накрыж; перасякацца. ‖ *зак.* **скрыжава́цца**, -жу́ецца. *Лініі скрыжаваліся.*

**КРЫЖАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Павук з крыжападобным рысункам са светлых плям на спіне.

**КРЫЖАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* **1.** Два брусы, дзве планкі, змацаваныя ў выглядзе крыжа. **2.** Прыстасаванне на месцы перасячэння рэйкавых пуцей для пераводу цягніка на другі пуць (спец.).

**КРЫЖАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* крыж. **2.** Скрыжаваны, перакрыжаваны. *Крыжавыя дарогі.*

**КРЫЖАДЗЮ́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікая лясная птушка сямейства ўюрковых з перакрыжаванымі канцамі дзюбы. ‖ *прым.* **крыжадзю́бавы**, -ая, -ае.

**КРЫЖА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *крыжаносец.*

**КРЫЖАКВЕ́ТНЫЯ**, -ых. Сямейства двухдольных раслін, кветка якіх складаецца з чатырох пялёсткаў, размешчаных крыж-накрыж (напр., капуста, бручка).

**КРЫЖА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Дзікая качка. ‖ *прым.* **крыжа́нкавы**, -ая, -ае.

**КРЫЖАНО́СЕЦ**, -но́сца, *мн.* -но́сцы, -но́сцаў, *м.* Удзельнік крыжовых паходаў, які першапачаткова насіў на адзенні чырвоны крыж.

**КРЫЖАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Які мае выгляд, форму крыжа. *К. меч.* ‖ *наз.* **крыжападо́бнасць**, -і, *ж.*

**КРЫЖАЧО́К**, -чка́, *м.* Беларускі народны парны танец, а таксама музыка да гэтага танца.

**КРЫЖО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* крыж. **2.** Які па форме нагадвае крыж. *Крыжовае скляпенне.* ○ **Крыжовыя паходы** — захопніцкія паходы заходнееўрапейскіх рыцараў у 11—13 стст. на Блізкі Усход.

**КРЫЗ**, -у, *м.* (спец.). Востры прыступ хваробы, які настаў раптоўна. *Гіпертанічны к.*

**КРЫ́ЗІС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Рэзкі, круты пералом у чым-н., абвастрэнне становішча. *Духоўны к. Урадавы к.* **2.** Абумоўлены супярэчнасцямі ў развіцці грамадства разлад эканамічнага жыцця. *Фінансавы к. У цісках эканамічнага крызісу.* **3.** Востры недахоп чаго-н., цяжкае становішча. *З грашамі ў яго к.* **4.** Пераломны момант у ходзе хваробы, які вядзе да паляпшэння або пагаршэння стану. *К. хваробы.* ‖ *прым.* **кры́зісны**, -ая, -ае.

**КРЫК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Моцны, вельмі рэзкі гук голасу. *У лесе пачуўся к.* **2.** Нападкі, папрокі рэзкім голасам. **3.** *перан., чаго.* Моцнае праяўленне якога-н. пачуцця. *К. адчаю. К. душы.* ◊ **Апошні крык моды** — пра модную навінку.

**КРЫКЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які многа, часта крычыць. *Крыклівыя дзеці.* **2.** Прарэзлівы, гучны, непрыемна рэзкі. *К. голас.* **3.** *перан.* Які прымушае звярнуць на сябе ўвагу сваёй стракатасцю, яркасцю. *Крыклівыя афішы. К. ўбор.* ‖ *наз.* **крыклі́васць**, -і, *ж.*

**КРЫКУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** Крыклівы чалавек. **2.** Пра таго, хто многа і попусту гаворыць. ‖ *ж.* **крыку́ха**, -і, *ДМ* -ку́се, *мн.* -і, -ку́х.

**КРЫЛА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Млекакормячая жывёліна атрада рукакрылых, родная кажану.

**КРЫЛА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (уст.) Шырокая мужчынская адзежына ў выглядзе накідкі, плашча з палярынай (насілі ў 19 — пачатку 20 ст.).

**КРЫЛА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае крылы (у 1—3 знач.). *К. птах. Крылатая ракета.* **2.** *перан.* Акрылены, узнёслы. *Крылатая фантазія.* ○ **Крылатыя словы** — трапныя, характэрныя словы, якія сталі хадавымі, шырокаўжывальнымі. ‖ *наз.* **крыла́тасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**КРЫ́ЛЛЕ**, -я, *н., зб.* Крылы. ‖ *прым.* **кры́ллевы**, -ая, -ае.

**КРЫЛО́**, -а́, *мн.* кры́лы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) крылы́, крыл *і* кры́лаў, *н.* **1.** Орган лятання ў птушак, насякомых, а таксама некаторых млекакормячых. *К. качкі. К. кажана.* **2.** Плоская паверхня самалёта, якая падтрымлівае яго ў паветры. **3.** Лопасць ветранога млына або параходнага вінта. **4.** Пакрыўка над колам аўтамабіля, веласіпеда і пад. для засцярогі ад пырскаў

вады і гразі. **5.** Бакавы корпус або бакавая частка пабудовы. *Левае к. бальніцы.* **6.** Левая або правая частка строю, баявога парадку войска; фланг. **7.** Крайняя (левая або правая) групоўка якой-н. арганізацыі. ◊ **Апусціць крылы** — страціць энергію, бадзёрасць. **Пад крылом** — пад чыёй-н. апекай (жыць, знаходзіцца і пад.). **Падрэзаць крылы** — перашкодзіць каму-н. шырока разгарнуць сваю дзейнасць. ‖ *памянш.* **крыльца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **крылавы**, -ая, -ае (да 1—4 знач.).

**КРЫЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Прамысловая назва некаторых відаў марскога рачка. ‖ *прым.* **кры́левы**, -ая, -ае.

**КРЫМІНАГЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які садзейнічае росту злачыннасці; здольны прывесці да злачынстваў. *Трапіць у крымінагеннае асяроддзе. Крымінагенная абстаноўка.* ‖ *наз.* **крымінаге́ннасць**, -і, *ж.*

**КРЫМІНА́Л**, -у, *м.* (разм.). Крымінальная справа. *Гэта ж к.!*

**КРЫМІНАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне крыміналістыкі. ‖ *ж.* **крыміналі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**КРЫМІНАЛІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Юрыдычная дысцыпліна, якая вывучае методыку, тактыку і тэхніку расследавання злачынстваў. ‖ *прым.* **крыміналісты́чны**, -ая, -ае. *К. метад.*

**КРЫМІНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб злачыннасці і метадах яе папярэджання. ‖ *прым.* **крыміналагі́чны**, -ая, -ае. *Крыміналагічныя даследаванні.*

**КРЫМІНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Звязаны са злачынствам; злачынны. *К. выпадак.* ‖ *наз.* **крыміна́льнасць**, -і, *ж.*

**КРЫМІНО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па крыміналогіі.

**КРЫМПЛЕ́Н**, -у, *м.* Сінтэтычная тканіна з поліэфірнага валакна. ‖ *прым.* **крымпле́навы**, -ая, -ае.

**КРЫНАЛІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Шырокая спадніца на тонкіх абручах, стальных або з кітовага вуса (у модзе з першай паловы 19 ст.). ‖ *прым.* **крыналі́навы**, -ая, -ае *і* **крыналі́нны**, -ая, -ае.

**КРЫНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* **1.** Натуральны выхад падземных вод на паверхню зямлі, а таксама вадаём, які ўтварыўся на месцы выхаду падземных натуральных вод. *Прынесці вады з крыніцы.* **2.** *перан., чаго.* Тое, што дае пачатак чаму-н., служыць асновай для чаго-н. *К. святла. К. дабра.* **3.** Пісьмовыя помнікі, дакументы, на аснове якіх пішуцца навуковыя даследаванні (спец.). *Мовазнаўчыя крыніцы.* ◊ **Біць крыніцай** — бурна развівацца, квітнець. **Жывая крыніца** — пра тое, што існуе ў сваім першапачатковым, натуральным стане. ‖ *прым.* **крыні́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КРЫНІЦАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Раздзел гістарычнай навукі, які займаецца метадамі вывучэння і выкарыстання гістарычных крыніц. ‖ *прым.* **крыніцазна́ўчы**, -ая, -ае.

**КРЫПТАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Умоўнае тайнае пісьмо, зразумелае толькі для дасведчаных. ‖ *прым.* **крыптаграфі́чны**, -ая, -ае.

**КРЫПТО́Н**, -у, *м.* Хімічны элемент, інертны газ без колеру і паху, які прымяняецца ў электрычных лямпах і рэкламных трубках і дае чысты белы колер. ‖ *прым.* **крыпто́навы**, -ая, -ае.

**КРЫСО́**, -а́, *мн.* кры́сы *і* (з ліч. 2, 3, 4) крысы́, кры́саў, *н.* Ніжняя частка адзежыны, палавіны якой спераду расхінаюцца; пала. *К. пінжака.* ◊ **З-пад крыса** (разм.) — тайна, незаконна.

**КРЫ́ССЕ**, -я, *н., зб.* Крысы, полы.

**КРЫ́ТЫ**, -ая, -ае. Які мае страху, дах, верх. *К. ганак. К. рынак.*

**КРЫ́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які выступае з крытыкай (у 1 знач.) чаго-н. *Патрабавальны к.* **2.** Спецыяліст, які займаецца разглядам і ацэнкай літаратурных, музычных, тэатральных і іншых твораў мастацтва. *Літаратурны к. Тэатральны к.*

**КРЫ́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Абмеркаванне, разбор чаго-н. з мэтай ацаніць вартасць. *Аб'ектыўная к.* **2.** Літаратурны жанр, задачай якога з'яўляецца аналіз, ацэнка, тлумачэнне твораў мастацтва, навукі, літаратуры. *Музычная к. К. і літаратуразнаўства.* **3.** Адмоўнае выказванне пра што-н., аналіз недахопаў. *Падвергнуць крытыцы работу чыноўнікаў.* **4.** *зб.* Крытыкі. ◊ **Не вытрымліваць (ніякай) крытыкі** — быць нікуды не вартым.

**КРЫТЫКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *незак., каго-што.* **1.** Падвяргаць крытыцы (у 1 знач.). **2.** Займацца крытыкай (у 2 знач.).

**КРЫТЫКА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (неадабр.). Чалавек, які схільны ўсё крытыкаваць, ва ўсіх бачыць адны недахопы. ‖ *ж.* **крытыка́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **крытыка́нскі**, -ая, -ае.

**КРЫТЫКА́НСТВА**, -а, *н.* (неадабр.). Прыдзірлівая, дробязная, павярхоўная і тэндэнцыйная крытыка.

**КРЫТЫЦЫ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Крытычныя адносіны да чаго-н. *Дух крытыцызму. Праявіць к.*

**КРЫТЫ́ЧНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Які заключае ў сабе крытыку (у 1, 2 знач.). *Крытычныя заўвагі. К. матэрыял.* **2.** Здольны адносіцца да каго-, чаго-н. крытычна, з крытыкай (у 1 знач.). *К. розум. Адносіцца крытычна* (прысл.) *да прапаноў.* ‖ *наз.* **крыты́чнасць**, -і, *ж.*

**КРЫТЫ́ЧНЫ**[2], -ая, -ае. **1.** Пераломны, які знаходзіцца ў стане крызісу. *К. момант хваробы. К. ўзрост.* **2.** Вельмі цяжкі, небяспечны. *Крытычнае становішча.* ○ **Крытычная тэмпература** — тэмпература пераходу цела з аднаго стану ў другі (спец.). ‖ *наз.* **крыты́чнасць**, -і, *ж.*

**КРЫТЭ́РЫЙ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* (кніжн.). Прыкмета, на аснове якой даецца ацэнка чаму-н., робіцца класіфікацыя чаго-н. *К. для падзелу твораў мастацтва. К. для вызначэння пераможцаў.*

**КРЫЎДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** *мн.* -ы, крыўд. Несправядлівы папрок, грубы ўчынак, дапушчаная абраза ў дачыненні да каго-н. *Не зрабіць нікому ніякай крыўды.* **2.** Пачуццё горычы, выкліканае несправядлівымі ўчынкамі, паводзінамі. ◊ **Быць у крыўдзе** *на каго* — крыўдзіцца. **Не даць у крыўду** *каго* — заступіцца за каго-н., абараніць. **Не ў крыўду хай будзе сказана** — не варта зласавацца на сказанае.

**КРЫЎДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; *незак.* Мець на каго-н. крыўду; крыўдзіцца. *Не трэба к.*

**КРЫЎДЗІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Той, хто крыўдзіў, крыўдзіць каго-н. ‖ *ж.* **крыўдзі́целька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек.

**КРЫЎДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *незак.* Адчуваць крыўду, прымаць што-н. за крыўду. *К. на несправядлівасць.*

**КРЫЎДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак., каго (што).* Рабіць крыўду каму-н. *К. таварыша.*

**КРЫЎДЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які лёгка крыўдзіцца, здольны адчуваць крыўду. *К. па натуры чалавек.* ‖ *наз.* **крыўдлі́васць**, -і, *ж.*

**КРЫЎДНЫ**, -ая, -ае. Які заключае ў сабе крыўду, прычыняе крыўду. *Крыўдная мянушка. Крыўдныя словы.*

**КРЫЎЛЯ́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ля́цы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -ля́к (разм.). Чалавек, які крыўляецца; ламака.

**КРЫЎЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* Рабіць грымасы, трымацца ненатуральна. *К. перад люстэркам.* ‖ *наз.* **крыўля́нне**, -я, *н.*

**КРЫХА́**, -і́, *ДМ* крысе́, *ж.* Нязначная колькасць, часцінка чаго-н. *К. хлеба.*

**КРЫХАБО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (неадабр.). Чалавек, схільны да крыхаборства. ‖ *прым.* **крыхабо́рскі**, -ая, -ае.

**КРЫХАБО́РНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (неадабр.). Займацца крыхаборствам, быць крыхаборам.

**КРЫХАБО́РСТВА**, -а, *н.* (неадабр.). **1.** Празмерная дробязнасць, скупасць. **2.** Празмерная ўвага да дробязей, што шкодзіць больш важным агульным пытанням. ‖ *прым.* **крыхабо́рскі**, -ая, -ае.

**КРЫХУ́**, *прысл.* **1.** У невялікай колькасці, нямнога. *Узяць к. солі. Назбіраць к. грыбоў.* **2.** У нязначнай ступені. *К. падлячыцца.*

**КРЫЦЬ**, кры́ю, кры́еш, кры́е; кры́й; кры́ты; *незак.* **1.** *што.* Рабіць страху, дах. *К. хату. К. веранду.* **2.** *каго-што.* Рэзка, груба крытыкаваць, лаяць (разм.). *К. недахопы.* ◊ **Крый бог (божа)** (разм.) — ужыв. як засцярога ад чаго-н., як забарона рабіць што-н. недапушчальнае. **Няма чым крыць** (разм.) — няма чаго сказаць у адказ, у апраўданне. **Няхай бог крые** (разм.) — ужыв. як пажаданне, пазбаўленне ад чаго-н. дрэннага. ‖ *зак.* **накры́ць**, -кры́ю, -кры́еш, -кры́е; -кры́ты (да 1 знач.) *і* па-

**крыць**, -крыю, -крыеш, -крые; -крыты (да 1 знач.).

**КРЫЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *незак.* **1.** Абзывацца крыкам (у 1 знач.); паднімаць крык. *К. ад болю. Крычаць, што аж у Крычаве чуваць!* **2.** Гучна гаварыць. *Не трэба к., гавары спакойна.* **3.** *на каго (што).* Гаварыць з кім-н. рэзкім тонам, лаяць каго-н. *К. на дзяцей.* **4.** *перан.* Шмат гаварыць пра каго-, што-н., многа пісаць у друку, прыцягваючы агульную ўвагу. *Так і крычаць газеты аб перамогах. Аб такой падзеі нельга многа к.* ◊ **Крычма крычаць** (разм.) — вельмі моцна крычаць (ад страху, крыўды і пад.). **Хоць гвалт (каравул) крычы** (разм.) — пра цяжкае бязвыхаднае становішча. ‖ *аднакр.* **крыкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1 і 3 знач.).

**КРЫША́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Адрэзаны плоскі кусок чаго-н. ядомага. *К. сала.*

**КРЫ́ШАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.). Што-н. раскрышанае, здробленае. *К. з хлеба з квасам.*

**КРЫ́ШАЧКУ**, *прысл.* Нямнога, трошкі.

**КРЫ́ШКУ**, *прысл.* Тое, што і *крыху.*

**КРЫШТАЛЕ...** (а таксама **крышталя...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да крышталёў, напр.: *крышталепадобны, крышталегідрат, крышталекераміка, крышталеўтварэнне.*

**КРЫШТАЛІЗАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -зу́ецца; *зак.* і *незак.* **1.** Ператварыцца (ператварацца) у крышталі. **2.** *перан.* Набыць (набываць) пэўныя ўстойлівыя формы (кніжн.). *Крышталізуюцца новыя ідэі.* ‖ *зак.* таксама **выкрышталізавацца**, -зуецца *і* **закрышталізава́цца**, -зу́ецца (да 1 знач.). ‖ *наз.* **крышталіза́цыя**, -і, *ж.*

**КРЫШТАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Ператварыць (ператвараць) у крышталі. ‖ *зак.* таксама **закрышталізава́ць**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны. ‖ *наз.* **крышталіза́цыя**, -і, *ж.*

**КРЫШТА́ЛЬ**, -я́ *і* -ю, *м.* **1.** -я, *мн.* -і́, -ёў. Цвёрдае цела, якое мае натуральную форму шматгранніка. *Крышталі кварцу.* **2.** -ю. Від шкла. *Ваза з крышталю.* ‖ *памянш.* **крышта́лік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.) ‖ *прым.* **крышталі́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **крышта́льны**, -ая, -ае.

**КРЫШТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* крышталь. **2.** *перан.* Празрысты, чысты. *Крыштальная вада.* **3.** *перан.* Беззаганны, бездакорны (пра лепшыя якасці чалавека, а таксама пра чалавека з такімі якасцямі). *Крыштальнае сумленне. Крыштальнай душы чалавек.* ‖ *наз.* **крышта́льнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**КРЫШТАЛЯ...** (*гл.* **крышталe...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «крышталe...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *крышталяоптыка, крышталяфізіка, крышталяхімія.*

**КРЫШТАЛЯГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Навука аб крышталях і крышталічным стане рэчыва. ‖ *прым.* **крышталеграфі́чны**, -ая, -ае.

**КРЫ́ШЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., крышыцца; *незак.* Драбіцца, рассыпацца на дробныя часткі. *Пячэнне крышыцца.* ‖ *зак.* **скрышы́цца**, скрышыцца, **раскрышы́цца**, -кры́шыцца *і* **пакрышы́цца**, -кры́шыцца.

**КРЫШЫ́ЦЬ**, крышу́, кры́шыш, кры́шыць; кры́шаны; *незак.* **1.** *што.* Наразаць дробнымі кавалкамі; здрабняць што-н. *К. буракі.* **2.** *каго-што.* Ламаць, разбіваць на часткі. *К. крэйду.* **3.** *перан., каго-што.* Знішчаць (разм.). *К. варожыя ўмацаванні.* **4.** Накідваць дзе-н. крошак (разм.). *Не крышы на падлогу.* ‖ *зак.* **скрышы́ць**, скрышу́, скры́шыш, скры́шыць; скры́шаны (да 1 і 2 знач.), **раскрышы́ць**, -крышу́, -кры́шыш, -кры́шыць; -кры́шаны (да 2 знач.) *і* **накрышы́ць**, -крышу́, -кры́шыш, -кры́шыць; -кры́шаны (да 1 і 3 знач.). ‖ *наз.* **крышэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**КРЭАЗО́Т**, -у, *М* -зо́це, *м.* Прадукт сухой перагонкі драўніны — масляністая вадкасць з пахам драўніннага дзёгцю, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне і тэхніцы. ‖ *прым.* **крэазо́тавы**, -ая, -ае.

**КРЭАТУ́РА**, -ы, *ж., каго* або *чыя* (кніжн.). Той, хто займае пасаду дзякуючы пратэкцыі якой-н. уплывовай асобы і з'яўляецца паслухмяным выканаўцам яе волі; стаўленік.

**КРЭВЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Невялікі ядомы марскі рак; мяса гэтага рака. *Салат з крэветак.* ‖ *прым.* **крэве́тачны**, -ая, -ае. *Крэветачнае масла.*

**КРЭ́ДА**, *нескл., н.* **1.** Сімвал веры ў каталіцкай царкве. **2.** *перан.* Чые-н. перакананні, светапогляд (кніжн.).

**КРЭ́ДЫТ**, -у, *М* -дыце, *м.* (спец.). У прыходна-расходных кнігах: падлік расходаў і даўгоў дадзенай установы. ‖ *прым.* **крэ́дытавы**, -ая, -ае.

**КРЭДЫ́Т**, -у, *М* -ды́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Продаж тавараў з адтэрмінаванай платай або часовая выдача банкам грошай у доўг на пэўныя расходы з выплатай за гэта працэнтаў. *Узяць мэблю ў крэдыт. Валютны к.* **2.** звычайна *мн.* Грашовыя сумы, адпушчаныя на пэўныя расходы. *Крэдыты на будаўніцтва. Крэдыты на сацыяльную сферу.* **3.** *перан.* Давер'е, аўтарытэт (кніжн.). *Палітычны к. Карыстацца крэдытам у каго-н.* ‖ *прым.* **крэды́тны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Крэдытныя аперацыі.*

**КРЭДЫТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Адпусціць (адпускаць) каму-н. крэдыты. *К. капітальнае будаўніцтва.* ‖ *наз.* **крэдытава́нне**, -я, *н.*

**КРЭДЫТАЗДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Здольны вярнуць тое, што ўзяў у крэдыт. ‖ *наз.* **крэдытаздо́льнасць**, -і, *ж.*

**КРЭДЫТО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба або ўстанова, якія даюць грошы або тавары ў крэдыт. ‖ *прым.* **крэдыто́рскі**, -ая, -ае.

**КРЭ́ЙДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Мяккі белы вапняк, які ўжыв. для пабелкі, пісання і інш. *Пісаць крэйдай на дошцы.* ‖ *прым.* **крэ́йдавы**, -ая, -ае.

**КРЭ́ЙСЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікі быстраходны баявы карабель. *Ракетны к.* ‖ *прым.* **крэ́йсерскі**, -ая, -ае.

**КРЭЙСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* **1.** Плаваць, рабіць рэйсы па пэўным маршруце. **2.** Ажыццяўляць ваенны нагляд у якіх-н. водах, плаваць з мэтай разведкі, аховы берагоў, правядзення асобных баявых дзеянняў і пад. ‖ *наз.* **крэ́йсерства**, -а, *н.* (да 2 знач.); *прым.* **крэ́йсерскі**, -ая, -ае. *Крэйсерская эскадра.* ○ **Крэйсерская скорасць** (спец.) — нармальная скорасць карабля або самалёта ў адрозненне ад максімальнай.

**КРЭ́КЕР**, -у, *м.* Разнавіднасць сухога пячэння, якое гатуецца з пшанічнай мукі і тлушчу, на дражджах і доўга захоўвае свае харчовыя якасці. ‖ *прым.* **крэ́керны**, -ая, -ае.

**КРЭ́КІНГ**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у. Перапрацоўка нафты і нафтапрадуктаў для атрымання бензіну і іншай сыравіны для хімічнай прамысловасці. **2.** -а, *мн.* -і, -аў. Спецыяльная ўстаноўка для такой перапрацоўкі. ‖ *прым.* **крэ́кінгавы**, -ая, -ае.

**КРЭМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Салодкая ежа з сумесі ўзбітых вяршкоў, шакаладу, фруктовых сокаў і пад., а таксама паўфабрыкат з гэтых прадуктаў для праслойвання і ўпрыгожвання пірожных і тортаў. *Шакаладны к. Узбіць к. Торт з заварным крэмам.* **2.** Касметычная мазь. **3.** Мазь для чысткі скуранога абутку; вакса, гуталін. ‖ *прым.* **крэ́мавы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Крэмавая начынка.*

**КРЭМАВА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: крэмавы (у 2 знач.), з крэмавым адценнем, напр.: *крэмава-белы, крэмава-жоўты, крэмава-ружовы.*

**КРЭ́МАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* крэм. **2.** Белы з жаўтаватым адценнем. *К. колер.*

**КРЭМАТО́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Спецыяльна абсталяваны будынак для крэмацыі. ‖ *прым.* **крэмато́рны**, -ая, -ае.

**КРЭМА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Спальванне трупаў у спецыяльных печах. ‖ *прым.* **крэмацы́йны**, -ая, -ае. *Крэмацыйная печ.*

**КРЭ́МЕНЬ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Вельмі цвёрды мінерал, які першапачаткова ўжываўся для высякання агню. **2.** *перан.* Пра чалавека з цвёрдым характарам. ‖ *прым.* **крамянёвы**, -ая, -ае (у 1 знач.).

**КРЭМЕНЯЗЁМ**, -у, *м.* Назва двухвокісу крэмнію, распаўсюджанага ў прыродзе ў выглядзе крэменю, кварцу, горнага хрусталю, аметысту. ‖ *прым.* **крэменязёмны**, -ая, -ае.

**КРЭ́МЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* і *без дап.* (разм.). Неакуратна, невыразна пісаць або чарціць. ‖ *зак.* **накрэ́мзаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *аднакр.* **крам-**

**зану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні. ‖ *наз.* **крэ́мзанне**, -я, *н.*

**КРЭМІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.*, *каго-што.* Падвергнуць (падвяргаць) крэмацыі.

**КРЭМЛЬ**, крамля́, *мн.* крамлі́, крамлёў, *м.* Унутраная гарадская крэпасць у старажытных рускіх гарадах. *Смаленскі к.* ‖ *прым.* **крамлёўскі**, -ая, -ае. *Крамлёўская сцяна.*

**КРЭ́МНІЙ**, -ю, *м.* Хімічны элемент, які ўваходзіць у склад большасці горных парод. ‖ *прым.* **крэ́мніевы**, -ая, -ае.

**КРЭМ-СО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Салодкі прахаладжальны напітак.

**КРЭН**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Нахіл набок (судна, самалёта). *Даць к.* **2.** *перан.* Змяненне напрамку дзейнасці, паварот да іншых задач. *К. у бок павышэння якасці прадукцыі.*

**КРЭ́НДЗЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Вітая здобная булка, якая па форме нагадвае васьмёрку. ‖ *прым.* **крэ́ндзельны**, -ая, -ае.

**КРЭО́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Нашчадак першых іспанскіх і партугальскіх каланізатараў у Лацінскай Амерыцы. ‖ *ж.* **крэо́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **крэо́льскі**, -ая, -ае.

**КРЭП**, -у, *м.* **1.** Шаўковая або шарсцяная тканіна з шурпатай паверхняй. **2.** Чорная празрыстая тканіна, а таксама жалобная павязка з такой тканіны. ‖ *прым.* **крэ́павы**, -ая, -ае.

**КРЭ́ПАСЦЬ**[1], -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Умацаваны пункт з доўгачасовымі абараняльнымі збудаваннямі; цвердзь. *Брэсцкая к.* ‖ *прым.* **крапасны́**, -а́я, -о́е. *К. вал.*

**КРЭ́ПАСЦЬ**[2] *гл.* купчая.

**КРЭПДЭШЫ́Н**, -у, *м.* Тонкая тканіна з натуральнага шоўку. ‖ *прым.* **крэпдэшы́навы**, -ая, -ае.

**КРЭ́ПНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; крэп, крэ́пла; -ні; *незак.* (разм.). Дранцвець, нямець ад холаду. *Рукі крэпнуць.*

**КРЭ́СІВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Кавалак сталі для высякання агню з крэменю.

**КРЭ́СЛА**, -а, *мн.* -ы, -сел *і* -слаў, *н.* **1.** Прадмет мэблі звычайна са спінкай, прызначаны для сядзення аднаго чалавека. *Драўлянае к. Расставіць крэслы вакол стала.* **2.** Прадмет мэблі з мяккай абіўкай і ручкамі-падлакотнікамі. *Мяккае к. К.-ложак.* **3.** *перан.* (звычайна з азначэннем). Месца работы, пасада (разм.). *Заняць міністэрскае к.* ‖ *памянш.* **крэ́сельца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **крэ́сельны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**КРЭ́СЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *незак.*, *што.* **1.** Выкрэсліваць, перакрэсліваць. *К. рукапіс.* **2.** Праводзіць па чым-н. рысы, пакідаючы сляды ў выглядзе ліній. *К. мелам на дошцы.* ‖ *наз.* **крэ́сленне**, -я, *н.*

**КРЭ́СЦІ**, -яў (разм.). Тое, што і *трэфы.*

**КРЭ́ЎНАСЦЬ** *гл.* кроўны.

**КРЭ́ЎНЫ** *гл.* кроўны.

**КРЭЦІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Хворы на крэцінізм (у 1 знач.). **2.** Пра разумова абмежаванага, тупога чалавека (лаянк.). ‖ *ж.* **крэці́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **крэці́нскі**, -ая, -ае (да 2 знач.; разм.).

**КРЭЦІНІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Від эндакрыннага захворвання — адставанне, затрымка фізічнага і псіхічнага развіцця, абумоўленыя парушэннем функцый шчытападобнай залозы і галаўнога мозга (спец.). **2.** *перан.* Тупасць, разумовая абмежаванасць.

**КРЭ́ЧАТ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Драпежная птушка сямейства сакаліных. ‖ *прым.* **крэ́чатавы**, -ая, -ае *і* **крэ́чатаў**, -тава, -тавы.

**КРЭШЧЭ́НДА**, *прысл.* (спец.). У музыцы: мацней, з паступовым нарастаннем сілы гуку. *Музыка гучыць к.*

**КСЕНАФО́БІЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Хваравіты, навязлівы страх перад незнаёмымі асобамі. **2.** Нянавісць, нецярпімасць да чаго-н. чужога, незнаёмага, замежнага.

**КСЕНО́Н**, -у, *м.* Хімічны элемент, інертны газ без колеру і паху, які прымяняецца ў электратэхніцы і медыцыне. ‖ *прым.* **ксено́навы**, -ая, -ае. *Ксенонавая трубка.*

**КСЕРАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Адзін са спосабаў электраграфавання — атрыманне копій розных адлюстраванняў (дакументаў, тэкстаў). ‖ *прым.* **ксераграфі́чны**, -ая, -ае.

**КСЕРАКАПІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак.* Зрабіць (рабіць) ксеракопію. *К. артыкул.* ‖ *наз.* **ксеракапі́раванне**, -я, *н.*

**КСЕРАКО́ПІЯ**, -і, *мн.* -і, -пій, *ж.* Копія, здымак, атрыманы шляхам ксераграфіі.

**КСЕ́РАКС**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у. Тое, што і *ксераграфія* (спец.). **2.** -а, *мн.* -ы, -аў. Разнавіднасць размнажальнага апарата для ксераграфічнага электраграфавання, які выкарыстоўвае магнітны сухі друк. **3.** -а. Адбітак, атрыманы пры дапамозе такога апарата; ксераграфічная копія (ксеракопія; разм.). *Зрабіць к. артыкула.* ‖ *прым.* **ксе́раксны**, -ая, -ае.

**КСЕРАФО́РМ**, -у, *м.* Жоўты парашок, вяжучы і антысептычны сродак вонкавага прымянення. ‖ *прым.* **ксерафо́рмны**, -ая, -ае.

**КСЁНДЗ**, ксяндза́, *мн.* ксяндзы́, ксяндзо́ў, *м.* Каталіцкі святар.

**КСІЛАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Гравіраванне на дрэве, а таксама сама гравюра на дрэве або адбітак з такой гравюры. ‖ *прым.* **ксілаграфі́чны**, -ая, -ае.

**КСІЛАФО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ударны музычны інструмент, што складаецца з 3—4 радоў драўляных брусочкаў, па якіх ударяюць двума драўлянымі малаточкамі. ‖ *прым.* **ксілафо́нны**, -ая, -ае.

**КУБ**[1], -а, *мн.* кубы́, -о́ў, *м.* **1.** Геаметрычнае цела — правільны шасціграннік, усе грані якога квадраты. **2.** У матэматыцы: здабытак ад множання якога-н. ліку на самога сябе двойчы, трэцяя ступень ліку. *Восем — гэта к. двух.* **3.** Кубічны метр як мера аб'ёму (разм.). *К. дроў.* ‖ *памянш.* **ку́бік**, -а, *мн.* -і, -аў, м. (да 1 знач.). ‖ *прым.* **кубі́чны**, -ая, -ае. *К. будынак. К. корань.*

**КУБ**[2], -а, *мн.* кубы́, -о́ў, *м.* Пасудзіна цыліндрычнай формы для перагонкі або кіпячэння вадкасці; тытан. *Перагонны к.* ‖ *прым.* **кубавы́**, -а́я, -о́е.

**КУБАВА́Я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* Памяшканне, дзе знаходзіцца кіпяцільны куб.

**КУ́БАВЫ**, -ая, -ае. Сіні, з густым яркім адценнем. *Кубавая фарба. К. колер.*

**КУ́БАК**, -бка, *мн.* -бкі, -бкаў, *м.* **1.** Невялікая, звычайна з ручкай, гліняная, фарфоравая ці іншая пасудзіна для піцця. *К. кавы.* **2.** Спартыўны прыз у выглядзе вазы (звычайна з каштоўнага матэрыялу), што ўручаецца пераможцу ў спартыўных спаборніцтвах. *Пераходны к.* ‖ *прым.* **ку́бкавы**, -ая, -ае (да 2 знач.). *К. матч.*

**КУБАМЕ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кубічны метр. *Купіць к. дроў.*

**КУБА́НКА**[1], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Шапка кубанскіх казакоў з плоскім верхам.

**КУБА́НКА**[2], -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.). Сорт пшаніцы.

**КУБАТУ́РА**, -ы, *ж.* Аб'ём чаго-н., выражаны ў кубічных адзінках. *К. памяшкання.*

**КУ́БЕЛ**, ку́бла, *мн.* кублы́, кубло́ў, *м.* Дзежка з вушкамі і векам для захоўвання прадуктаў і рэчаў. ‖ *памянш.* **кубе́лец**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.*; *прым.* **кубе́лечны**, -ая, -ае. ‖ *прым.* **ку́бельны**, -ая, -ае.

**КУ́БІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* куб. **2.** Кубічны сантыметр як мера аб'ёму (разм.). *Два кубікі донарскай крыві.* **3.** звычайна *мн.* Дзіцячая цацка — набор маленькіх прадметаў у форме куба з малюнкамі, літарамі і пад. на гранях. *Дзіцячыя кубікі.*

**КУБІ́НЦЫ**, -аў, *адз.* кубі́нец, -нца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Кубы. ‖ *ж.* **кубі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **кубі́нскі**, -ая, -ае.

**КУБІ́ЧНЫ** *гл.* куб[1].

**КУ́БРЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Жылое памяшканне для каманды на караблі.

**КУВА́ЛДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ва́лд *і* -аў, *ж.* Цяжкі кавальскі молат.

**КУГА́КАЎКА**, -і, *ДМ* -цы, *мн.* -і, -вак, *ж.* Буйная птушка атрада соў.

**КУГА́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Плакаць (пра грудное дзіця). **2.** Крычаць (пра саву). ‖ *наз.* **куга́канне**, -я, *н.*

**КУГУА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *пума.*

**КУДА́ХТАЦЬ**, -хчу, -хчаш, -хча; -хчы; *незак.* Пра курэй: ствараць гукі, падобныя на «куд-кудах». ‖ *наз.* **куда́хтанне**, -я, *н.*

**КУДЗЕ́ЛІСТЫ**, -ая, -ае. Падобны на кудзелю, пушысты, лахматы. *Кудзелістыя ніткі.* ‖ *наз.* **кудзе́лістасць**, -і, *ж.*

**КУДЗЕ́ЛІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ліцца; *незак.* (разм.). Станавіцца падобным на кудзелю.

**КУДЗЕ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *незак.*, *што* (разм.). Рабіць падобным на кудзелю. *К. ніткі.*

**КУДЗЕ́ЛЯ**, -і, *ж.* Валакністая частка лёну, пянькі. ‖ *прым.* **кудзе́льны**, -ая, -ае.

**КУ́ДЗЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Кучаравая пасма валасоў; локан.

**КУ́ДЗЕРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Кучаравыя або накручаныя валасы.

**КУДЛА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** З доўгімі скалмачанымі валасамі; лахматы. *Кудлатая галава.* **2.** З доўгай густой поўсцю; касматы. *К. сабака.* || *наз.* **кудла́тасць**, -і, *ж.*

**КУДЛА́ЦІЦЦА**, -ла́чуся, -ла́цішся, -ла́ціцца; *незак.* (разм.). Станавіцца кудлатым. || *зак.* **пакудла́ціцца**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ціцца, **ускудла́ціцца**, -ла́чуся, -ла́цішся, -ла́ціцца *і* **скудла́ціцца**, -ла́чуся, -ла́цішся, -ла́ціцца.

**КУДЛА́ЦІЦЬ**, -ла́чу, -ла́ціш, -ла́ціць; -ла́чаны; *незак., каго-што* (разм.). Рабіць кудлатым. *К. валасы.* || *зак.* **пакудла́ціць**, -ла́чу, -ла́ціш, -ла́ціць; -ла́чаны, **ускудла́ціць**, -ла́чу, -ла́ціш, -ла́ціць; -ла́чаны *і* **скудла́ціць**, -ла́чу, -ла́ціш, -ла́ціць; -ла́чаны. || *наз.* **кудла́чанне**, -я, *н.*

**КУДЛА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Пра чалавека з доўгімі кудлатымі валасамі.

**КУ́ДЛЫ**, -аў (разм.). Доўгія скалмачаныя пасмы валасоў.

**КУДЫ́**, *прысл.* **1.** *пыт.* У якім напрамку?, у якое месца? *К. едзе аўтобус?* **2.** *пыт.* На што? для якой мэты? (разм.). *К. стольκі цукру пайшло?* **3.** *неазнач.* У якое-н. месца, куды-н. (разм.). *Хлопцы пайшлі ў кіно, а можа, яшчэ к. падаліся.* **4.** *адноснае* Ужыв. ў якасці злучніка: а) у даданых сказах месца; б) у даданых дапаўняльных сказах; у даданых азначальных сказах. *К. вецер вее, туды галлё гнецца. Хто ведае, к. вядзе гэта дарога. Усе павярнулі галовы ў той бок, к. накіраваўся бацька.* **5.** *у знач. часц.* (разм.). У спалучэнні з вышэйшай ступенню прыметнікаў і прыслоўяў абазначае: значна, намнога (разм.). *Гэта сукенка к. лепшая за тую.* **6.** *у знач. часц.* Выражае сумненне, немагчымасць чаго-н. *К. мне да вас!* ◊ **Куды каторы** — у розныя бакі разляцецца, разбегчыся. **Куды ні кінь вокам** (разм.) — усюды. **Хоць куды** (у знач. вык.; разм.) — добры ва ўсіх адносінах, прыгодны да ўсяго.

**КУДЫ́-НЕ́БУДЗЬ**, *прысл.* Усё роўна куды; у няпэўнае месца. *К. паедзем.*

**КУДЫ́-НІКУДЫ́**, *прысл.* У якое-небудзь месца. *Ну хадзім жа к.*

**КУДЫ́СЬЦІ**, *прысл.* Невядома куды. *Сын к. пайшоў.*

**КУ́ЖАЛЬ**, -ю, *м.* **1.** Валакно ачэсанага лёну, а таксама ніткі з такога валакна. *Спрасці к.* **2.** Палатно з такіх нітак. *Наткаць абрусаў з кужалю.* || *прым.* **кужэ́льны**, -ая, -ае. *Кужэльныя ніткі. Кужэльная кашуля.*

**КУ́ЗАЎ**, -зава, *мн.* -завы, -заваў, *м.* Частка павозкі, экіпажа, аўтамашыны і пад., якая служыць для размяшчэння людзей або грузаў. || *прым.* **кузаўны́**, -а́я, -о́е.

**КУ́ЗНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Майстэрня з горнам для ручной коўкі металу. **2.** *перан., чаго.* Месца, дзе ствараецца што-н. вельмі важнае, істотнае (высок.). *Універсітэт — к. маладых спецыялістаў.* || *прым.* **ку́зневы**, -ая, -ае.

**КУЗУ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Тое, што і *казяўка.* || *памянш.-ласк.* **кузу́рачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**КУКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; *незак.* **1.** Пра зязюлю: ствараць гукі, падобныя на «ку-ку». **2.** *перан.* Цярпець нягоду, гараваць (разм.). || *зак.* **пракукава́ць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й. || *наз.* **кукава́нне**, -я, *н.*

**КУ́КАЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Насякомае на стадыі свайго развіцця, калі знікаюць лічынкавыя органы і развіваюцца органы дарослага насякомага.

**КУКА́РДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, кука́рд *і* -аў, *ж.* Знак устаноўленага ўзору на форменнай фуражцы. || *прым.* **кука́рдны**, -ая, -ае *і* **кука́рдавы**, -ая, -ае.

**КУКАРЭ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Крычаць «ку-ка-рэ-ку». || *зак.* **пракукарэ́каць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **кукарэ́канне**, -я, *н.*

**КУ-КА-РЭ́-КУ**, *выкл. гукаперайм.* Ужыв. для абазначэння крыку пеўня.

**КУ́КІШКІ**, -шак. У выразах: **на кукішках** (сядзець), **на кукішкі** (сесці) — сагнуўшы ногі ў каленях і трымаючыся на насках.

**КУ́КЛА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Жаночая прычоска: сабраныя ў касу і закручаныя ззаду валасы.

**КУ-КЛУКС-КЛА́Н**, -а, *м.* Тэрарыстычная расісцкая арганізацыя ў ЗША. || *прым.* **куклукскла́наўскі**, -ая, -ае.

**КУКЛУКСКЛА́НАВЕЦ**, -наўца, *мн.* -наўцы, -наўцаў, *м.* Член ку-клукс-клана; лінчавальнік.

**КУКО́ЛЬ**, -ю, *м.* Аднагадовая травяністая расліна сямейства гваздзіковых — пустазелле з цёмна-ружовымі кветкамі і ядавітым насеннем, якое расце сярод злакаў.

**КУ́КСА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Частка канечнасці, якая засталася пасля ампутацыі або калецтва.

**КУКУРУ́ЗА**, -ы, *ж.* Аднагадовая травяністая расліна сямейства злакавых з высокім і тоўстым сцяблом і ядомымі буйнымі жоўтымі зярнятамі, сабранымі ў пачаткі, а таксама зерне гэтай расліны. || *прым.* **кукуру́зны**, -ая, -ае.

**КУЛА́К**[1], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Кісць рукі з прыгнутымі к далоні пальцамі. **2.** *перан.* Сканцэнтраваныя ў адным месцы ваенныя ўзброеныя сілы для рашаючага ўдару. *Сабраць полк у к.* || *памянш.* **кулачо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* (да 1 знач.). || *прым.* **кула́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *К. бой.* ◊ **Кулачнае права** — панаванне насілля, грубай сілы.

**КУЛА́К**[2], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (гіст.) Заможны селянін-уласнік, які выкарыстоўваў батракоў як наёмную рабочую сілу. || *ж.* **кула́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (разм.). || *зб.* **кула́цтва**, -а, *н.* || *прым.* **кула́цкі**, -ая, -ае.

**КУЛАМЕ́СА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Гразь, змешаная са снегам, вязкая маса чаго-н. **2.** *перан.* Бязладдзе, неразбярыха.

**КУЛА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дзікая жывёліна, роднасная аслу.

**КУЛА́ЧКІ**. У выразе: **ісці на кулачкі** — удзельнічаць у кулачным баі.

**КУЛЕ́Ш**, -ляшу́, *м.* Рэдкая мучная або крупяная каша з салам.

**КУЛЁМ**, *прысл.* (разм.). **1.** Імкліва, перакульваючыся цераз галаву. *Паляцець к. з гары.* **2.** Стрымгалоў. *Кінуцца к. за кім-н.*

**КУ́ЛІ**, *нескл., м.* Чорнарабочы (насільшчык, грузчык) у некаторых усходніх краінах.

**КУЛІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Невялікая балотная птушка з доўгімі нагамі і доўгай дзюбай. *Кожны к. сваё балота хваліць* (прыказка).

**КУЛІНА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па кулінарыі (у 1 знач.); вопытны, умелы повар. **2.** Чалавек, які добра і смачна гатуе розныя стравы. *Добры к.* || *ж.* **куліна́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. || *прым.* **куліна́рскі**, -ая, -ае. *Кулінарская работа.*

**КУЛІНА́РЫЯ** *і* **КУЛІНАРЫ́Я**, -і, *ж.* **1.** Майстэрства прыгатавання ежы. *Курсы кулінарыі.* **2.** Магазін гатовых страў і харчовых паўфабрыкатаў. || *прым.* **куліна́рны**, -ая, -ае. *Кулінарныя вырабы.*

**КУЛІ́СА**, -ы, *мн.* -ы, кулі́с, *ж.* **1.** Бакавая плоская частка тэатральнай дэкарацыі, размешчаная па баках сцэны. *Зайсці за кулісы.* **2.** *перан., чаго.* Тое, чым прыкрываюць што-н., за чым хаваецца што-н. *За кулісамі палітычнай барацьбы.* ◊ **За кулісамі** — а) у тэатральным, акцёрскім асяроддзі; б) тайна, скрытна, у неафіцыйнай абстаноўцы. || *прым.* **кулі́сны**, -ая, -ае.

**КУЛІ́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Салодкі здобны пірог цыліндрычнай формы (па праваслаўнай традыцыі выпякаецца да Вялікадня). || *прым.* **кулі́чны**, -ая, -ае. *Кулічнае цеста.*

**КУЛО́Н**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Жаночае ўпрыгажэнне з каштоўных камянёў ці іншага матэрыялу, якое носяць на ланцужку на шыі. || *прым.* **куло́нны**, -ая, -ае.

**КУЛО́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адзінка вымярэння колькасці электрычнасці, электрычнага зараду ў Міжнароднай сістэме адзінак.

**КУЛУА́РЫ**, -аў. **1.** Памяшканні па-за залай пасяджэння (у парламенце, тэатры і пад.), якія служаць для адпачынку, неафіцыйных сустрэч. **2.** *перан.* Аб неафіцыйных размовах у дасведчаных палітычных, грамадскіх колах (кніжн.). *Вядома з кулуараў.* || *прым.* **кулуа́рны**, -ая, -ае. *Кулуарныя размовы.*

**КУЛЬ**[1], -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Тоўсты сноп адборнай саломы, з якой раней рабілі стрэхі. || *прым.* **кулявы́**, -а́я, -о́е. *Кулявая салома.*

**КУЛЬ**[2], -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Задняя частка рыбалоўнай снасці (невада, жака і пад.) у выглядзе вузкага доўгага мяшка, куды трапляе рыба пры лоўлі. || *прым.* **кулько́вы**, -ая, -ае.

**КУ́ЛЬБА**, -ы, *мн.* -ы, кульб *і* **КУЛЬБА́КА**, -і, *ДМ* -ба́цы, *мн.* -і, -ба́к, *ж.* (разм.).

Палка з загнутым верхнім канцом для апоры пры хадзьбе.

**КУЛЬГА́ВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *незак.* Станавіцца кульгавым.

**КУЛЬГА́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** З карацейшай ці балючай нагой. *К. дзед.* **2.** Са зламанай або карацейшай, чым іншыя, ножкай (пра рэчы; разм.). *Кульгавая табурэтка.* **3.** Больш кароткі, чым іншы, іншыя (пра нагу, пра ножку чаго-н.; разм.). *Кульгавая нага.* ‖ *наз.* **кульга́васць**, -і, *ж.*

**КУЛЬГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Хадзіць чыкільгаючы, нясмела ступаючы на карацейшую ці балючую нагу. **2.** Быць кульгавым, мець карацейшую ці балючую нагу. **3.** *перан.* Мець недахопы, быць у нездавальняючым стане (разм.). *У яго арфаграфія кульгае.* ◊ **Кульгаць на абедзве нагі** (разм., неадабр.) — мець многа прабелаў (пра чые-н. веды, пра якую-н. справу, работу). ‖ *наз.* **кульга́нне**, -я, *н.*

**КУЛЬМІНА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Праходжанне свяціла праз нябесны мерыдыян (спец.). **2.** Пункт найвышэйшага ўздыму, напружання ў развіцці чаго-н. *К. падзей.* ‖ *прым.* **кульмінацы́йны**, -ая, -ае. *К. момант.*

**КУЛЬНУ́ЦЦА** *гл.* куляцца.

**КУЛЬНУ́ЦЬ** *гл.* куляць.

**КУЛЬТ**, -у, *М* -льце, *м.* **1.** Рэлігійнае служэнне бажаству і звязаныя з гэтым абрады. *К. бога Сонца ў язычнікаў. Служыцелі культу* (духавенства). **2.** *перан., каго-чаго.* Сляпое пакланенне каму-, чаму-н., абагаўленне каго-, чаго-н. *К. асобы.* ‖ *прым.* **ку́льтавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**КУЛЬТ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае: звязаны з абслугоўваннем і задавальненнем культурных патрэб, культурна-асветны, напр.: *культработнік, культпаход.*

**КУЛЬТПАХО́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Калектыўнае наведванне тэатра, музея, кіно і пад.

**КУЛЬТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ту́р, *ж.* **1.** толькі *адз.* Сукупнасць дасягненняў чалавецтва ў вытворчым, грамадскім і духоўным жыцці. *Гісторыя культуры. Матэрыяльная к. Духоўная к.* **2.** толькі *адз.* Адукаванасць, культурнасць, выхаванасць. *Грамадства высокай культуры.* **3.** толькі *адз.* Ступень, узровень развіцця якой-н. сферы чалавечай дзейнасці. *К. земляробства. К. вытворчасці. К. мовы.* **4.** Сфера чалавечай дзейнасці, звязаная з мастацтвам, асветнай дзейнасцю і пад. *Работнікі культуры. Дом культуры.* **5.** толькі *адз.* Развядзенне, вырошчванне якой-н. расліны; культываванне. *К. лёну. К. бульбы.* **6.** звычайна *мн.* Віды раслін, якія разводзяцца, вырошчваюцца. *Тэхнічныя культуры. Зерневыя культуры.* **7.** Мікраарганізмы, вырашчаныя ў лабараторных умовах у пажыўным асяроддзі (спец.). *К. стрэптакокаў.* ‖ *прым.* **культу́рны**, -ая, -ае (да 1—3 знач.). *Культурныя традыцыі народа. К. чалавек.*

**КУЛЬТУРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая вывучае ўнутраныя заканамернасці развіцця культуры, тэндэнцыі ўзаемадзеяння культуры і грамадства. ‖ *прым.* **культуралагі́чны**, -ая, -ае.

**КУЛЬТУ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* культура. **2.** Які знаходзіцца на высокім узроўні культуры. *Культурнае грамадства. Культурная гаспадарка.* **3.** Які звязаны з пашырэннем культуры, асветы. *Весці культурную работу.* **4.** Вырашчаны чалавекам, не дзікарослы. *Культурныя расліны.* ○ **Культурны слой зямлі** — слой зямлі, які ўтвараецца з арганічных і іншых рэшткаў на месцах пасяленняў чалавека. ‖ *наз.* **культу́рнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**КУЛЬТУРО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па культуралогіі.

**КУЛЬТУРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Сістэма фізічных практыкаванняў (пераважна сілавых), якія садзейнічаюць развіццю мускулатуры цела чалавека, фарміраванню прыгожай фігуры і паставы; занятак такімі практыкаваннямі.

**КУЛЬТУРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца культурызмам.

**КУЛЬТЫВАВА́ЦЬ**, -тыву́ю, -тыву́еш, -тыву́е; -тыву́й; -тывава́ны; *незак., што.* **1.** Апрацоўваць зямлю культыватарам. **2.** Разводзіць, вырошчваць (злакі, расліны). *К. новыя гатункі бульбы.* **3.** *перан.* Удасканальваць што-н. якім-н. спосабам; садзейнічаць развіццю чаго-н. *К. працавітасць.* ‖ *наз.* **культывава́нне**, -я, *н.* *і* **культыва́цыя**, -і, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **культывацы́йны**, -ая, -ае.

**КУЛЬТЫВА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Сельскагаспадарчая прылада для рыхлення глебы і знішчэння пустазелля і пад. ‖ *прым.* **культыва́тарны**, -ая, -ае.

**КУ́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, куль, *ж.* Невялікі свінцовы або стальны прадаўгаваты снарад для стральбы з ручной агнястрэльнай зброі і кулямётаў. *Трасіруючая к. Бранябойная к.* ◊ **Адліваць кулі** (разм.) — ілгаць, хлусіць. **Вылецець куляй** (разм.) — імкліва выбегчы адкуль-н. ‖ *прым.* **кулявы́**, -а́я, -о́е. *Кулявое раненне.*

**КУЛЯБЯ́КА**, -і, *ДМ* -бя́цы, *мн.* -і, -бя́к, *ж.* Прадаўгаваты вялікі пірог, начынены мясам, рыбай, капустай і інш. ‖ *прым.* **кулябя́чны**, -ая, -ае.

**КУЛЯВЫ́**[1] *гл.* куль[1].

**КУЛЯВЫ́**[2] *гл.* куля.

**КУЛЯМЁТ**, -а, *М* -мёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтаматычная скарастрэльная зброя для стральбы кулямі. *Ручны к. Станковы к.* ‖ *прым.* **кулямётны**, -ая, -ае.

**КУЛЯМЁТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Стралок з кулямёта. ‖ *ж.* **кулямётчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**КУЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* Пераварочвацца цераз галаву, перакульвацца. ‖ *аднакр.* **кульну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся. ‖ *наз.* **куля́нне**, -я, *н.*

**КУЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., што.* Валіць набок; пераварочваць, перакульваць. ◊ **Куляць чарку** (разм.) — выпіваць. ‖ *аднакр.* **кульну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты. ‖ *наз.* **куля́нне**, -я, *н.*

**КУМ**, -а, *мн.* -ы́, -оў, *м.* Хросны бацька ў адносінах да бацькоў хрэсніка і да хроснай маці. ‖ *ласк.* **кумо́к**, -мка́, *мн.* -мкі́, -мко́ў, *м.* (разм.).

**КУМА́**, -ы́, *мн.* -ы́, -оў, *ж.* Хросная маці ў адносінах да бацькоў хрэсніка і да хроснага бацькі. ‖ *ласк.* **ку́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.*

**КУМАЎСТВО́**, -а́, *н.* (разм.). **1.** Сяброўскія адносіны паміж кумамі. **2.** *перан.* Паблажлівасць у службовых справах сябрам або сваякам. ‖ *прым.* **кумаўскі́**, -а́я, -о́е.

**КУМА́Ч**, -у́, *м.* Баваўняная тканіна ярка-чырвонага колеру. ‖ *прым.* **кумачо́вы**, -ая, -ае.

**КУМЕ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Разважаць, абдумваць. **2.** Разумець што-н., цяміць, кеміць.

**КУМІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Статуя язычніцкага бажаства; ідал. **2.** *перан.* Той (тое), хто (што) з'яўляецца прадметам асаблівага захаплення і пакланення (высок. і іран.).

**КУМІ́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* Язычніцкая малельня з кумірамі; капішча.

**КУМІ́ЦЦА**, -млюся, -мішся, -міцца; -мімся, -міцеся, -мяцца; *незак.* (разм.). Уступаць у кумаўскія адносіны. ‖ *зак.* **пакумі́цца**, -млюся, -мішся, -міцца; -мімся, -міцеся, -мяцца.

**КУМПЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Бядровая частка тушы (звычайна свіной). *Вэнджаны к.* **2.** Знешні бок верхняй часткі бядра (разм.). ‖ *прым.* **кумпя́чны**, -ая, -ае.

**КУМЫ́КІ**, -аў, *адз.* -мы́к, -а, *м.* Народнасць, якая складае частку насельніцтва Дагестана. ‖ *ж.* **кумы́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **кумы́цкі**, -ая, -ае.

**КУМЫ́С**, -у, *м.* Пажыўны напітак з малака кабылы, вярблюдзіцы. *Піць к.* ‖ *прым.* **кумы́сны**, -ая, -ае.

**КУМЫСАЛЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Лячэнне кумысам.

**КУНЖУ́Т**, -у, *М* -жу́це, *м.* Аднагадовая паўднёвая травяністая расліна, з насення якой здабываюць алей. ‖ *прым.* **кунжу́тны**, -ая, -ае. *К. алей.*

**КУНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* Невялікі драпежны звярок сямейства куніцавых з каштоўным футрам, а таксама футра гэтага звярка. ‖ *прым.* **куні́цавы**, -ая, -ае.

**КУНСТКА́МЕРА**, -ы, *мн.* -ы, -мер, *ж.* (уст.). Збор гістарычных, мастацкіх і пад. рэдкасцей, а таксама памяшканне для такога збору.

**КУНТУ́Ш**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Старадаўняя польская і ўкраінская адзежына ў выглядзе каптана з шырокімі адкіднымі рукавамі.

**КУ́ПА**, -ы, *мн.* -ы, куп, *ж.* **1.** Група дрэў, кустоў, якія густа растуць. *К. кустоў.* **2.** Гурт, група (людзей). *К. людзей. Калі робіш у купе, то не баліць у пупе* (з нар.). **3.** Вялікая колькасць чаго-н., куча (разм.). *К. саломы.* ◊ **Да купы** (разм.) — у адно месца.

**КУ́ПАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дах, верхняе скляпенне ў форме паўшар'я. *К. цырка.* **2.** *перан.* Пра якую-н. паверхню, прадмет, што маюць такую форму. *К. неба. К. парашута.* ‖ *прым.* **ку́пальны**, -ая, -ае. *Купальнае перакрыцце.*

**КУПА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Род травяністых раслін сямейства складанакветных з дробнымі кветкамі. **2.** Купальская песня.

**КУПА́ЛЛЕ**, -я, *н.* (з вялікай літары). Старажытнае свята летняга сонцастаяння ва ўсходніх славян, якое святкуецца ў ноч на 7 ліпеня (24 чэрвеня па старым стылі). ‖ *прым.* **купа́льскі**, -ая, -ае. *Купальская ноч. Купальская кветка.*

**КУПА́ЛЬНІК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Жаночы касцюм для купання.

**КУПА́ЛЬНІК**[2], -у, *м.* Высокая травяністая расліна сямейства складанакветных з жоўтымі кветкамі (скарыстоўваецца ў медыцыне).

**КУПА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* Пабудова на вадзе або ля вады для купання.

**КУПА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто купаецца (у рацэ, возеры, моры). ‖ *ж.* **купа́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**КУПАРВА́С**, -у, *м.* Назва некаторых солей сернай кіслаты. *Медны к. Жалезны к.* ‖ *прым.* **купарва́сны**, -ая, -ае.

**КУПА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Апусціўшыся ў ваду, абмывацца, плаваць, асвяжацца. *К. ў моры.* **2.** *перан., у чым, ад чаго.* Мець, скарыстоўваць чаго-н. залішне многа, цешыцца ад чаго-н. *К. ў грашах. К. ў шчасці.*

**КУПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак., каго-што.* Апускаць у ваду для мыцця, асвяжэння і пад. *К. дзіця.* ‖ *зак.* **вы́купаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *звар.* **купа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **вы́купацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **купа́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **купа́льны**, -ая, -ае. *К. касцюм. К. сезон.*

**КУПЕ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Пасудзіна ў форме чашы, у якую апускаюць дзіця пры царкоўным абрадзе хрышчэння. ‖ *прым.* **купе́льны**, -ая, -ае.

**КУПЕ́Ц**, -пца́, *мн.* -пцы́, -пцо́ў, *м.* **1.** Багаты гандляр, уладальнік прыватнага гандлёвага прадпрыемства. *К. першай гільдыі.* **2.** Пакупнік (разм.). *Знайсці купца на тавар.* ‖ *памянш.* **ку́пчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.; разм.). ‖ *павел.* **купчы́на**, -ы, *мн.* -ы, -чы́н, *м.* (да 1 знач.; разм.). ‖ *ж.* **купчы́ха**, -і, *ДМ* -чы́се, *мн.* -і, -чы́х (да 1 знач.). ‖ *зб.* **купе́цтва**, -а, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **купе́цкі**, -ая, -ае (да 1 знач.). *К. сан.*

**КУП'Ё**, -я́, *н., зб.* Купіны.

**КУПІ́ЛА**, -а, *н.* (разм.). Грашовыя сродкі. *Купіў бы, ды купіла няма.*

**КУ́ПІНА**, -ы, *мн.* -ы, -пін, *ж.* Грудок сухой, цвёрдай зямлі на нізкім або балоцістым месцы, аброслы мохам, травой.

**КУПІ́РАВАНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *купэйны.*

**КУП'І́СТЫ**, -ая, -ае. З купінамі. *Куп'істая сенажаць.* ‖ *наз.* **куп'і́стасць**, -і, *ж.*

**КУПІ́ЦЬ**, куплю́, ку́піш, ку́піць; ку́плены; *зак.* **1.** *каго-што.* Набыць за грошы ці за іншыя каштоўнасці. *К. кнігу. На базары розуму не купіш* (прыказка). **2.** *каго (што).* Схіліць на свой бок подкупам, абяцаннямі і пад.; падкупіць. *Справядлівага чалавека не к.* ‖ *незак.* **купля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **ку́пля**, -і, *ж.* (да 1 знач.) *і* **купля́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**КУПЛЕ́Т**, -а, *м* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Страфа песні або верша. ‖ *прым.* **купле́тны**, -ая, -ае.

**КУПЛЕТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Эстрадны артыст, які выконвае сатырычныя, жартаўлівыя песенькі. ‖ *ж.* **куплеты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**КУПЛЁНЫ**, -ая, -ае. Не хатняга вырабу, а набыты за грошы.

**КУПО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адразны талон у каштоўных паперах на атрыманне працэнтаў з іх. **2.** Адразны талон на пакупку пэўнага тавару ва ўмовах таварнага дэфіцыту (у СССР у 1989—1991 гг.). ‖ *прым.* **купо́нны**, -ая, -ае.

**КУПЧА́СТЫ**, -ая, -ае. Пра дрэвы, кветкі: пышны, з густой кронай. *Купчастая вішня.* ‖ *наз.* **купча́стасць**, -і, *ж.*

**КУ́ПЧАЯ**, -ая, -ае. У выразе: **купчая крэпасць**, або **купчая**, -ай, *ж.* (гіст.) — дакумент аб куплі і продажы нерухомай маёмасці і аб праве на валоданне ёю ў дарэвалюцыйнай Расіі.

**КУПЧЫ́ХА**, -і, *ДМ* -чы́се, *мн.* -і, -чы́х, *ж.* (разм.). **1.** *гл.* купец. **2.** Жонка купца.

**КУПЭ́**, *нескл., н.* Асобнае памяшканне ў вагоне пасажырскага цягніка для некалькіх пасажыраў.

**КУПЭ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Падзелены на купэ. *К. вагон.* ‖ *наз.* **купэ́йнасць**, -і, *ж.*

**КУПЮ́РА**[1], -ы, *мн.* -ы, -пю́р, *ж.* Скарачэнне, пропуск у тэксце літаратурнага або музычнага твора. *Верш надрукаваны з купюрамі.* ‖ *прым.* **купю́рны**, -ая, -ае.

**КУПЮ́РА**[2], -ы, *мн.* -ы, -пю́р, *ж.* (спец.). Каштоўная папера — аблігацыя або грашовы знак. *Старублёвая к.*

**КУ́РАВА**, -а, *н.* Куродым, сажа ад дыму.

**КУРА́ВЫ**, -ая, -ае. (разм.). **1.** Які дыміць. *Куравая галавешка.* **2.** Пакрыты сажай ад дыму, закуродымлены.

**КУРАГА́**, -і́, *ДМ* -разе́, *ж.* (зб.). Высушаныя абрыкосы без костачак. *Кампот з курагі.*

**КУРАГАДО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Развядзенне курэй як галіна птушкагадоўлі. ‖ *прым.* **курагадо́ўчы**, -ая, -ае.

**КУРА́ЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *незак.* (разм.). **1.** Важнічаць, трымацца фанабэрыста. **2.** Крыўляцца.

**КУРАННЫ́** *гл.* курэнь.

**КУРА́НТЫ**, -аў. Даўнейшая назва вежавага або насценнага гадзінніка, бой якога суправаджаецца музыкай. *Бой курантаў.*

**КУРАНЯ́** *і* **КУРАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Птушаня курыцы. ◊ **Куранят увосень лічаць** (прыказка) — толькі канец справы пакажа, ці варта было яе пачынаць. ‖ *памянш.* **кураня́тка**, -а, *мн.* -і, -так, *н.* ‖ *прым.* **кураня́чы**, -ая, -ае.

**КУРАПА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Дзікая птушка сямейства цецерукоВЫХ. *Шэрая к.* ‖ *прым.* **курапа́ткавы**, -ая, -ае.

**КУРАРТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які вывучае лекавыя ўласцівасці мясцовасці і іх выкарыстанне ў лячэбных мэтах. ‖ *прым.* **курарталагі́чны**, -ая, -ае.

**КУРАСА́ДНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* (разм.). Перакладзіна ў куратніку, на якую куры садзяцца на ноч; седала.

**КУРАСЛЕ́П**, -у, *м.* Народная назва шматгадовай травяністай расліны сямейства казяльцовых з жоўтымі кветкамі. *Расцвіў к.* ‖ *прым.* **курасле́пны**, -ая, -ае.

**КУРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кіраўнік, апякун. ‖ *прым.* **кура́тарскі**, -ая, -ае. *К. студэнцкай групы.*

**КУРА́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Памяшканне для курэй.

**КУРА́ЦІНА**, -ы, *ж.* Мяса курыцы.

**КУРГА́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Высокі старадаўні надмагільны насып з зямлі ці камення. *Скіфскі к.* ‖ *прым.* **курга́нны**, -ая, -ае.

**КУ́РДЫ**, -аў, *адз.* курд, -а, *м.* Народ іранскай моўнай групы, які жыве ў Паўднёва-Заходняй Азіі, краінах Блізкага Усходу і ў Расіі. ‖ *ж.* **курдзя́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **ку́рдскі**, -ая, -ае.

**КУРДЗЮ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Тлушчавае адкладанне каля хваста ў некаторых парод авечак. ‖ *прым.* **курдзю́чны**, -ая, -ае. *Курдзючныя авечкі.*

**КУР'Е́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пасыльны ва ўстанове, які выконвае розныя даручэнні. **2.** Службовая асоба, якая развозіць спешныя афіцыйныя даручэнні, сакрэтную пошту. ○ **Дыпламатычны кур'ер** — супрацоўнік Міністэрства замежных спраў, які перавозіць дыпламатычную пошту. ‖ *прым.* **кур'е́рскі**, -ая, -ае. *Кур'ерскія даручэнні.*

**КУР'Ё́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Недарэчны выпадак, смешнае здарэнне. ‖ *прым.* **кур'ё́зны**, -ая, -ае. *К. выпадак.* ‖ *наз.* **кур'ё́знасць**, -і, *ж.*

**КУРКО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ко́ўцы, *мн.* -і, -ко́вак, *ж.* (разм.). Курковая паляўнічая стрэльба.

**КУРЛЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Пра жураўлёў: ствараць гукі, падобныя на «курлы». ‖ *аднакр.* **курлы́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **курлы́канне**, -я, *н.*

**КУРНО́СЫ**, -ая, -ае. **1.** Кароткі і задзёрты (пра нос). **2.** З кароткім і задзёртым носам. *К. твар.* ‖ *наз.* **курно́сасць**, -і, *ж.*

**КУРНУ́ЦЬ** *гл.* курыць.

**КУ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які абаграваецца печкай без коміна. *Курная хата.* **2.** Які дае многа дыму, копаці. *Курная галавешка.*

**КУРНЯ́ЎКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Пра катоў: ствараць гукі, падобныя на «курняў».

**КУРО́ДЫМ**, -у, *м.* Густы едкі дым пры тленні, гарэнні без полымя.

**КУРО́ДЫМЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *незак.* Вылучаць курадым, дымець. *Галавешка куродымее.* || *зак.* **закуро́дымець**, -ее.

**КУРО́ДЫМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; *незак.* Спальваючы што-н., напускаць куродыму. *Начнічок к.* || *зак.* **закуро́дыміць**, -млю, -міш, -міць; -млены.

**КУРО́К**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* Частка ўдарнага механізма ў ручной агнястрэльнай зброі. *Націснуць на к.* || *прым.* **курко́вы**, -ая, -ае.

**КУРО́РТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мясцовасць з прыроднымі лекавымі ўласцівасцямі (мінеральнымі крыніцамі, гразямі і пад.), прыгодная для пабудовы санаторыяў, дамоў адпачынку, лячэбніц і пад. *Лячыцца і адпачываць на курорце.* || *прым.* **куро́ртны**, -ая, -ае. *К. сезон.*

**КУРО́РТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які лечыцца, адпачывае на курорце. || *ж.* **куро́ртніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**КУРС**[1], -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Напрамак руху, шлях (карабля, самалёта і пад.). *Самалёт узяў к. на поўдзень.* **2.** *перан.* Кірунак якой-н. палітычнай, грамадскай дзейнасці. *К. на раззбраенне. Знешнепалітычны к.* **3.** Цана, па якой прадаюцца (купляюцца) каштоўныя паперы, валюта. *Валютны к. Змагацца за ўстойлівы к. рубля.* ◊ **У курсе** *чаго* (быць) і **ў курс** *чаго* (увайсці, увесці) — пра дасведчанасць у чым-н. || *прым.* **курсавы́**, -а́я, -о́е. *К. рух. Курсавая табліца.*

**КУРС**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Закончаны цыкл, увесь аб'ём спецыяльнага навучання, якіх-н. працэдур. *К. сярэдняй школы. К. гразелячэння.* **2.** Асобная гадавая ступень адукацыі ў вышэйшай школе і спецыяльных навучальных установах, а таксама група навучэнцаў гэтай ступені. *Скончыць к. ва ўніверсітэце. Староста курса. Студэнт трэцяга курса.* **3.** Выклад навуковай дысцыпліны ў вышэйшай школе, у спецыяльнай навучальнай установе. *Прачытаць к. лекцый па гісторыі Беларусі.* || *прым.* **курсавы́**, -а́я, -о́е. *Курсавая работа студэнта.*

**КУРСА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Навучэнец курсаў. **2.** Навучэнец сярэдняй або вышэйшай ваеннай навучальнай установы. *К. суворараўскага вучылішча.* || *ж.* **курса́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **курса́нцкі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**КУРСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* Рабіць рэгулярныя паездкі, рэйсы па пэўным маршруце (пра самалёт, цягнік, аўтобус і пад.). *Паміж горадам і вёскай курсіруе аўтобус.*

**КУРСІ́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (гіст.) У дарэвалюцыйнай Расіі: слухачка вышэйшых жаночых курсаў.

**КУРСІ́Ў**, -сіву, *м.* Друкарскі нахілены ўправа шрыфт, падобны да рукапіснага почырку. *Выдзеліць цытату курсівам.* || *прым.* **курсі́ўны**, -ая, -ае.

**КУРСО́ЎКА**, -і, *ДМ* -со́ўцы, *мн.* -і, -со́вак, *ж.* Дакумент на права лячэння і харчавання на курорце, звычайна без забеспячэння жыллём. || *прым.* **курсо́вачны**, -ая, -ае. *Курсовачныя хворыя.*

**КУ́РСЫ** *гл.* курс[2].

**КУРТА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** З кароткім або адсечаным хвастом (пра жывёл). *К. сабака.* **2.** *перан.* Невялікага росту, малы, кароткі. *К. чалавек.* **3.** Цесны (пра адзенне). *К. пінжачок.* **4.** *перан.* Няпоўны, абмежаваны (іран.). *К. канспект.* || *наз.* **курта́тасць**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**КУ́РТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Кароткая верхняя вопратка, якая зашпільваецца на гузікі ці на маланку. || *памянш.* **ку́ртачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* || *прым.* **ку́ртачны**, -ая, -ае.

**КУРТЫЗА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (уст.). Жанчына лёгкіх паводзін, якая мела апекуноў у арыстакратычным асяроддзі.

**КУРЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* **1.** Града для кветак, клумба (уст.). **2.** Участак, засаджаны адной пародай дрэў, а таксама група дрэў адной пароды. **3.** Частка крапаснога вала паміж двума бастыёнамі (уст.). || *прым.* **курці́нны**, -ая, -ае.

**КУРЧ**, -у, *м.* Сутаргавае сцягванне мышц цела.

**КУ́РЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *незак.* **1.** Сціскацца ўсім целам (ад болю, сутаргі, холаду і пад.). *К. ад болю.* **2.** Рабіцца няроўным, пагнутым; скручвацца, выгінацца. *Бяроста курчылася на агні.*

**КУ́РЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* **1.** *каго (што)*, звычайна *безас.* Балюча зводзіць мышцы цела. *Яго ўсяго курчыла.* **2.** *што.* Падгінаць. *К. пальцы на назе.*

**КУ́РЫВА**, -а, *н.* (разм.). Табака і наогул тое, што можна курыць. *Трэба купіць к.*

**КУРЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). Тое, што і *курыльня.*

**КУРЫ́ЛЬНЫ** *гл.* курыць.

**КУРЫ́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* Пакой для курэння.

**КУРЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., каго-што.* (кніжн.) Ажыццяўляць нагляд і дапамогу. *К. працу. К. студэнтаў.*

**КУ́РЫЦА**, -ы, *мн.* ку́ры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) ку́рыцы, -рэ́й, *ж.* **1.** Свойская птушка, якую разводзяць для атрымання яек і мяса. **2.** Самка птушак атрада курыных. *К. з куранятамі.* **3.** Мяса курыцы; кураціна. ◊ **Класціся спаць з курамі** — вельмі рана. **Курам на смех** — пра што-н. вельмі недарэчнае. **Куры засмяюць** *каго* — пра таго, хто робіць што-н. недарэчнае. **Куры не клююць** — вельмі многа (звычайна пра грошы). **Мокрая курыца** — пра растрывожанага, спалоханага або бязвольнага, бесхарактарнага чалавека. || *памянш.* **ку́рачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* || *прым.* **куры́ны**, -ая, -ае. ○ **Курыная слепата** — 1) тое, што і кураслеп; 2) хвароба вачэй, калі чалавек не бачыць пры слабым святле, асабліва ў прыцемку.

**КУРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., ку́рыцца; *незак.* **1.** Слаба гарэць, тлець, вылучаючы многа дыму. *На вогнішчы курыліся галавешкі. Папяроса не курыцца.* **2.** *чым* і *без дап.* Вылучаць выпарэнні, лёгкі туман, пару. *Ад летняга дажджу лес курыўся парай.* **3.** Паднімацца ўверх, кружыцца (пра дым, туман, пыл і пад.). *За машынай курыўся пыл.*

**КУРЫ́ЦЬ**, куру́, ку́рыш, ку́рыць; ку́раны; *незак.* **1.** *што* і *без дап.* Удыхаць і выдыхаць дым якога-н. рэчыва, пераважна тытуню. *К. цыгарэту.* **2.** *што* і *чым.* Спальваць пахучыя рэчывы для атрымання пахучага дыму. *К. ладанам.* || *аднакр.* **курну́ць**, -ну́, -нё́ш, -нё́; -нё́м, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты (да 1 знач.). || *наз.* **курэ́нне**, -я, *н.* || *прым.* **куры́льны**, -ая, -ае. *Курыльная табака. К. пакой.*

**КУ́РЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Аб'яднанне некалькіх патрыцыянскіх родаў у Старажытным Рыме (гіст.). **2.** Разрад выбаршчыкаў, падзеленых па нацыянальнай, маёмаснай і іншых адзнаках. *Дваранская к.* ○ **Папская (Рымская) курыя** — вярхоўны орган, цераз які Папа Рымскі ажыццяўляе кіраўніцтва каталіцкай царквой. || *прым.* **курыя́льны**, -ая, -ае.

**КУРЭ́НЬ**, кураня́, *мн.* курані́, куранёў, *м.* **1.** У некаторых мясцовасцях Беларусі: будан (разм.). **2.** Жылая хата ў некаторых месцах Украіны і Прыдоння. **3.** Асобная частка Запарожскага войска, а таксама яе стан (гіст.). || *прым.* **куранны́**, -а́я, -о́е (да 3 знач.). *К. атаман. Выбіраць кураннога* (наз.).

**КУРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -рыць; *незак.* Тое, што і *курыцца* (у 1—3 знач.).

**КУСА́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Недаедзены кавалачак хлеба. *Я чужых кусанікаў не ем.*

**КУСА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Мець прывычку кусаць (у 1 знач.). *Сабака кусаецца.* **2.** Кусаць адзін аднаго; грызціся (пра сабак, звяроў). **3.** *перан.* Крыўдзіць, дапякаць чым-н. **4.** *перан.* Мець уласцівасць раздражняць, пячы скуру (пра крапіву і іншыя расліны; пра мароз, вецер і інш.), а таксама пра вырабы з грубай шэрсці. *Крапіва кусаецца. Шарсцяная коўдра кусаецца.*

**КУСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак., каго-што.* **1.** Хапаць, раніць зубамі, джалам, прыносячы боль. *Сабака кусае.* **2.** Захопліваць зубамі, аддзяляць, адкусваць ад чаго-н. *К. хлеб. К. яблык.* **3.** *перан.* Крыўдзіць, дапякаць чым-н. **4.** Адразаць кавалачкамі. *К. дрот.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Моцна пячы, раздражняць скуру (пра крапіву і некаторыя калючыя расліны). ◊ **Кусаць (сабе) локці** — шкадаваць аб чым-н. упушчаным, непапраўным. || *аднакр.* **кусану́ць** -ну́, -нё́ш, -нё́; -нё́м, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **кусну́ць**, -ну́, -нё́ш, -нё́; -нё́м, -няце́, -ну́ць; -ні́. || *наз.* **куса́нне**, -я, *н.*

вання жывёлы. *Соль-л.* || *прым.* **лізунцо́вы**, -ая, -ае.

**ЛІК**[1], -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* лічыць. **2.** Паняцце колькасці, велічыня, пры дапамозе якой праводзіцца лічэнне. *Цэлыя лікі. Простыя лікі.* **3.** Колькасць каго-, чаго-н. *Л. рабочых дзён.* **4.** Састаў, рад, колькасць каго-, чаго-н. *Быць у ліку перадавых.* **5.** Граматычная катэгорыя, якая выражае адзінкавасць або множнасць. *Множны л. Адзіночны л.* **6.** Вынікі гульні, выражаныя ў лічбах. ○ **Астранамічныя лікі** — пра вельмі вялікія лічбавыя велічыні. **Круглыя лікі** — лікі без дробавых адзінак. ◊ **Без ліку** (разм.) — вельмі многа, шмат. **Ліку няма** (разм.) — вельмі многа, незлічонае мноства каго-, чаго-н. || *прым.* **лі́кавы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ЛІК**[2], -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Твар (уст. *і* высок.). *Лікі святых.*

**ЛІКБЕ́З**, -у, *м.* (уст.). Навучанне грамаце непісьменных дарослых і падлеткаў. || *прым.* **лікбе́заўскі**, -ая, -ае.

**ЛІКВІДАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ду́ецца; *зак.* і *незак.* Спыніць (спыняць) сваю дзейнасць. *Установа ліквідуецца.*

**ЛІКВІДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Правесці (праводзіць) ліквідацыю каго-, чаго-н. *Л. аддзяленне банка. Л. запазычанасць.*

**ЛІКВІДА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца ліквідацыяй чаго-н. *Л. наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.* || *прым.* **ліквіда́тарскі**, -ая, -ае.

**ЛІКВІДА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Спыненне дзейнасці чаго-н. (напр., прадпрыемства, установы). *Л. фірмы.* **2.** Спыненне існавання каго-, чаго-н. *Л. непісьменнасці.* || *прым.* **ліквідацы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЛІКЁР**, -у, *м.* Салодкі спіртны напітак з фруктовых і ягадных сокаў; настой траў. || *прым.* **лікёрны**, -ая, -ае.

**ЛІЛЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* лілія. **2.** *перан.* Пяшчотны і белы, як лілія (уст., высок.). *Лілейныя грудзі.* || *наз.* **ліле́йнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ЛІЛЕ́Я**, -і, *мн.* -і, -ле́й, *ж.* (паэт., уст.). Тое, што і *лілія.*

**ЛІЛІПУ́Т**, -а, *М* -пу́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек вельмі маленькага росту; карлік. **2.** *перан.* Пра што-н. вельмі малога памеру. *Станок-л.* || *ж.* **ліліпу́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **ліліпу́цкі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЛІ́ЛІЯ**, -і, *мн.* -і, -лій, *ж.* Цыбульная расліна сямейства лілейных з прамым сцяблом і буйнымі кветкамі ў выглядзе звона. *Белая л.* || *прым.* **ліле́йны**, -ая, -ае.

**ЛІЛОВА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) лілова, з лілавым адценнем, напр.: *лілова-блакітны, лілова-сіні, лілова-ружовы, лілова-чырвоны;* 2) ліловы, у спалучэнні з іншым асобным колерам, напр.: *лілова-белы, лілова-сівы.*

**ЛІЛО́ВЫ**, -ая, -ае. Светла-фіялетавы, колеру бэзу ці фіялкі. *Л. колер.* || *наз.* **ліло́васць**, -і, *ж.*

**ЛІМА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Заліў, утвораны морам у нізоўях ракі, а таксама салёнае возера паблізу мора, звычайна багатае на лячэбныя гразі. || *прым.* **ліма́нны**, -ая, -ае.

**ЛІМАНА́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Салодкі безалкагольны напітак, звычайна з сокам лімона. || *прым.* **ліманадны**, -ая, -ае.

**ЛІМІ́Т**, -у, *М* -міце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гранічная норма. *Л. на электраэнергію. Л. на вываз тавараў.* || *прым.* **ліміт́ны**, -ая, -ае.

**ЛІМІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што.* Устанавіць (устанаўліваць) ліміт, гранічную норму чаго-н.

**ЛІМО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Цытрусавае вечназялёнае пладовае дрэва, а таксама кіслы на смак плод гэтага дрэва з тоўстай пахучай скуркай. || *прым.* **лімо́нны**, -ая, -ае. *Л. колер* (светла-жоўты).

**ЛІМОННАКІ́СЛЫ**, -ая, -ае. Які змяшчае ў сабе лімонную кіслату або атрыманы з лімоннай кіслаты. *Л. хінін.*

**ЛІМУЗІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікі прадстаўнічы легкавы аўтамабіль з закрытым кузавам, забяспечаным шкляной перагародкай. || *прым.* **лімузі́нны**, -ая, -ае.

**ЛІ́МФА**, -ы, *ж.* Бясколерная вадкасць у целе чалавека і пазваночных жывёл, якая ўтвараецца з плазмы крыві і запаўняе міжклетачную прастору. || *прым.* **лімфаты́чны**, -ая, -ае *і* **лімфо́ідны**, -ая, -ае. *Лімфатычная сістэма. Лімфатычныя залозы.*

**ЛІНАГРАВЮ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Від гравюры (у 1 знач.) — атрыманне адлюстравання з плоскай друкаванай формы з лінолеуму або іншых пластычных матэрыялаў. *Тэхніка лінагравюры. Займацца лінагравюрай.* **2.** Від гравюры — адлюстраванне, атрыманае з плоскай друкаванай формы на лінолеуме або іншых пластычных матэрыялах. || *прым.* **лінагравю́рны**, -ая, -ае.

**ЛІНАТЫ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Друкарская машына, якая адлівае набор цэлымі радкамі. || *прым.* **лінаты́пны**, -ая, -ае. *Л. набор.*

**ЛІНГАФО́ННЫ**, -ая, -ае. У выразе: **лінгафонны кабінет** — аўдыторыя, абсталяваная спецыяльнай апаратурай, якая дае магчымасць навучэнцам самастойна авалодваць замежнай мовай, а таксама культурай маўлення роднай мовы.

**ЛІНГВАГЕАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Лінгвістычная геаграфія — раздзел дыялекталогіі, што вывучае тэрытарыяльнае размяшчэнне дыялектных з'яў, якімі адрозніваюцца дыялекты дадзенай мовы. || *прым.* **лінгвагеаграфі́чны**, -ая, -ае.

**ЛІНГВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне лінгвістыкі, мовазнавец. || *ж.* **лінгві́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ЛІНГВІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Навука аб мове; мовазнаўства. || *прым.* **лінгвісты́чны**, -ая, -ае.

**ЛІНЕ́ІЦЬ**, -не́ю, -не́іш, -не́іць; -не́ены; *незак., што.* Праводзіць на чым-н. паралельныя лініі для пісання па іх. *Л. паперу.* || *зак.* **налінеі́ць**, -не́ю, -не́іш, -не́іць; -не́ены. || *наз.* **лінеенне**, -я, *н. і* **лінёўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.). || *прым.* **лінеельны**, -ая, -ае.

**ЛІНЕ́ЙКА**[1], -і, *ДМ* -не́йцы, *мн.* -і, -не́ек, *ж.* **1.** Прамая лінія на паперы або дошцы, якая дапамагае пісаць роўнымі радкамі. *Сшытак у лінейку.* **2.** Інструмент, прылада ў выглядзе планкі для вычэрчвання прамых ліній, для вымярэння. *Маштабная л. Лагарыфмічная л.* (прыбор для вылічэнняў). **3.** Строй у шарэнгу; збор (школьны, вайсковы), на якім удзельнікі выстраены ў шарэнгі. *Пастроіцца ў лінейку.* **4.** Адна з дарожак унутры лагера, якая падзяляе яго на прамавугольныя ўчасткі (спец.). || *памянш.* **лінеечка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* || *прым.* **лінеечны**, -ая, -ае (да 1, 2 і 3 знач.).

**ЛІНЕ́ЙКА**[2], -і, *ДМ* -не́йцы, *мн.* -і, -не́ек, *ж.* (уст.). Мнагамесны адкрыты экіпаж з бакавымі падоўжанымі сядзеннямі. || *прым.* **лінеечны**, -ая, -ае.

**ЛІНЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае выгляд лініі, складаецца з ліній, мае адносіны да ліній (у 1 знач.). *Л. арнамент. Лінейныя меры даўжыні.* **2.** Тое, што і *рэгулярны* (у 2 знач.; уст.). *Лінейныя войскі.* **3.** Які складае аснову баявых злучэнняў флоту. *Л. крэйсер.* **4.** Прызначаны для абслугоўвання ліній сувязі ці шляхоў зносін. *Лінейная міліцыя. Л. манцёр.* ○ **Лінейная скорасць** — скорасць руху, якая вызначаецца па даўжыні шляху, пройдзенага за адзінку часу.

**ЛІНЕ́ЙЧАТЫ**, -ая, -ае. Які мае на сваёй паверхні лініі ў адным напрамку. *Л. ліст.* || *наз.* **ліне́йчатасць**, -і, *ж.*

**ЛІНЁЎКА**, -і, *ДМ* -нёўцы, *ж.* **1.** *гл.* лінеіць. **2.** Спосаб, характар лінеення. *Косая л. Л. ў клетачку.*

**ЛІ́НЗА**, -ы, *мн.* -ы, лінз *і* -аў, *ж.* Род аптычнага шкла з крывалінейнымі, звычайна сферычнымі паверхнямі. *Выпуклая л.* || *прым.* **лі́нзавы**, -ая, -ае.

**ЛІ́НІЯ**, -і, *мн.* -і, -ній, *ж.* **1.** Рыса на плоскасці, паверхні або ў прасторы. *Прамая л. Ломаная л.* **2.** Рыса, якая вызначае кірунак, мяжу, узровень чаго-н. *Берагавая л. Л. гарызонту.* **3.** Размяшчэнне чаго-н. у адзін рад. *Л. ўмацавання.* **4.** Шлях (чыгуначны, водны і інш.) зносін, напрамак якіх-н. перадач. *Паветраная л. Трамвайная л. Тэлеграфная л.* **5.** Паслядоўны рад продкаў, нашчадкаў, аб'яднаных кроўнымі сувязямі. *Л. роду.* **6.** *перан.* Напрамак, спосаб дзеянняў, думак, поглядаў. *Л. паводзін.* **7.** *перан.* Галіна якой-н. дзейнасці. *Працаваць па грамадскай лініі.* **8.** Старая руская мера даўжыні, роўная 1/10 цалі. ◊ **Весці (гнуць) сваю лінію** (разм.) — дамагацца свайго. **Ісці па лініі найменшага супраціўлення** — выбіраць найбольш лёгкі спосаб дзеянняў, ухіляючыся ад цяжкасцей.

**ЛІНКА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: лінейны карабель; вялікі добра ўзброены ваенны карабель, прызначаны для буйных баявых аперацый.

**ЛІНО́ЛЕУМ**, -у, *м.* Трывалы палімерны матэрыял для пакрыцця падлогі. ‖ *прым.* **лінóлеумавы**, -ая, -ае.

**ЛІ́НУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* Паліцца, хлынуць патокам.

**ЛІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; лінь; *зак.* **1.** Рэзкім рухам выліць, узліць на што-н. вадкасць. *Л. вады на рукі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць моцна ліцца, хлынуць патокам (пра дождж, святло, паветра і пад.). *Лінуў дождж.*

**ЛІНЧАВА́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; -чу́й; -чава́ны; *зак. і незак., каго (што).* Падвергнуць (падвяргаць) самасуду, так званаму суду Лінча. ‖ *наз.* **лінчава́нне**, -я, *н.*

**ЛІНЬ**[1], -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Прэснаводная рыба сямейства карпавых з тоўстым слізістым целам. ‖ *памянш.* **лінёк**, -ньќа, *мн.* -ньќі, -ньќоў, *м.*

**ЛІНЬ**[2], -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* (спец.). Вельмі моцны тонкі канат для карабельнай снасці. ‖ *памянш.* **лінёк**, -ньќа, *мн.* -ньќі, -ньќоў, *м.* ‖ *прым.* **лінявы́**, -а́я, -óе.

**ЛІНЮ́ЧЫ**, -ая, -ае. Які лёгка ліняе, выцвітае. *Л. паркаль.* ‖ *наз.* **лінючасць**, -і, *ж.*

**ЛІНЯ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які страціў першапачатковую афарбоўку; выцвілы. **2.** Які скінуў, змяніў сваё верхняе покрыва; выліналы (пра жывёл і птушак).

**ЛІНЯ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́е; *незак.* **1.** Траціць сваю першапачатковую афарбоўку; выцвітаць. *Тканіна ліняе на сонцы.* **2.** Скідваць ці мяняць у пэўныя перыяды сваё покрыва (пра жывёл, птушак). *Зайцы ліняюць.* ‖ *зак.* **вы́лінядь**, -яе, **зліня́ць**, -я́е (да 1 знач.) *і* **паліня́ць**, -я́е. ‖ *наз.* **ліня́нне**, -я, *н. і* **лі́нька**, -і, *ДМ* -ньцы, *ж.* (да 2 знач.). *Веснавая л. пушных звяроў.*

**ЛІ́ПА**[1], -ы, *мн.* -ы, ліп, *ж.* Лісцевае дрэва сямейства ліпавых з сэрцападобнымі зубчастымі лістамі і жаўтаватымі духмянымі меданоснымі кветкамі. ‖ *памянш.* **лі́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* ◊ **Абадраць як ліпку** — аграбіць, адабраць усё (разм.). ‖ *прым.* **лі́павы**, -ая, -ае. *Сямейства ліпавых* (наз.).

**ЛІ́ПА**[2], -ы, *ж.* (разм.). Пра што-н. падробленае, фальшывае, несапраўднае. ‖ *прым.* **лі́павы**, -ая, -ае. *Ліпавыя дакументы.*

**ЛІ́ПЕНЬ**, -я, *м.* Сёмы месяц каляндарнага года. ‖ *прым.* **лі́пеньскі**, -ая, -ае.

**ЛІПЕ́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́; *незак.* (разм.). **1.** Ледзь-ледзь трымацца (пра каго-, што-н.). *Дзверы ледзь ліпяць.* **2.** Пра вельмі слабае праяўленне якіх-н. працэсаў, пра стан заняпаду чаго-н. *Агонь ледзь ліпіць.* ◊ **Ліпець на валаску (на павуцінцы)** (разм.) — быць у вельмі ненадзейным, небяспечным становішчы.

**ЛІ́ПІНА**, -ы, *ж.* (разм.). Асобнае дрэва ліпы. *Ліпіну віхор зваліў.*

**ЛІ́ПКІ**, -ая, -ае. **1.** Які лёгка прыліпае; клейкі. *Ліпкія рукі. Ліпкае лісце.* **2.** *перан.* Неадчэпны, назойлівы (разм.). *Л. чалавек.* ‖ *наз.* **лі́пкасць**, -і, *ж.*

**ЛІ́ПНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; ліп, лі́пла; -ні; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *да каго-чаго.* Прыліпаць, прыставаць. *Гразь ліпне да абутку.* **2.** *перан., да каго-чаго.* Назойліва прыставаць (разм.). *Ён ліпне да яе.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і *зліпацца. Вочы ліпнуць.*

**ЛІПНЯ́К**, -у́, *м.* Ліпавы зараснік. *Разросся малады л.*

**ЛІПУ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (разм.). **1.** Ліпучы, клейкі пластыр, папера. *Л. для мух.* **2.** Засцежка ў выглядзе дзвюх рознатэкстурных пласцін, якія прылеплiваюцца адна да адной.

**ЛІПУ́ЧЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *ліпкі.* ‖ *наз.* **ліпу́часць**, -і, *ж.*

**ЛІ́РА**[1], -ы, *мн.* -ы, лір, *ж.* **1.** Старажытнагрэчаскі струнны шчыпковы музычны інструмент, які лічыцца сімвалам паэтычнай творчасці. *Л. песняра.* **2.** Даўнейшы народны беларускі струнны смычковы інструмент. ‖ *прым.* **лі́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЛІ́РА**[2], -ы, *мн.* -ы, лір, *ж.* **1.** Грашовая адзінка ў Турцыі. **2.** Грашовая адзінка ў Італіі (гіст.).

**ЛІ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (гіст.). Вандроўны беларускі музы́ка-пясняр з лірай[1] (у 2 знач.).

**ЛІРЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Лірычны характар, лірычны змест чаго-н. *Л. паэмы.* **2.** Чуллівасць у перажываннях, у настроі; мяккасць і тонкасць эмацыянальнага пачатку. *Л. беларускага пейзажу.*

**ЛІ́РЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Аўтар лірычных літаратурных твораў. *Паўлюк Трус — паэт-л.*

**ЛІ́РЫКА**, -і, *ДМ* -рыцы, *ж.* **1.** Адзін з трох родаў мастацкай літаратуры, у якім адлюстроўваюцца перажыванні, пачуцці, настроі паэта. *Беларуская л.* **2.** Сукупнасць твораў гэтага роду паэзіі. *Л. Багдановіча.* **3.** *перан.* Чуллівасць, перажыванні, настрой (разм.). *Пакіньце лірыку!* ‖ *прым.* **лíры́чны**, -ая, -ае. *Лірычная паэзія. Л. настрой.* ○ **Лірычнае адступленне** — у эпічным або ліра-эпічным літаратурным творы: прасякнутае лірызмам адступленне, афарбаванае інтымнай звернутасцю аўтара да чытача. ◊ **Лірычнае адступленне** — адступленне ад тэмы (размова і інш.).

**ЛІРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* лірыка. **2.** Прасякнуты лірызмам (у 2 знач.). *Л. тон.* **3.** Пра голас спевака: мяккі, прыемны па тэмбры. *Л. тэнар.* ‖ *наз.* **лíры́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**ЛІС**, лі́са, *мн.* лісы́, -óў, *м.* Самец лісы. ‖ *прым.* **лісі́ны**, -ая, -ае. *Лісіная ўсмешка* (перан.: хітрая).

**ЛІСА́**, -ы́, *мн.* лі́сы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) лісы́, ліс, *ж.* **1.** Драпежная жывёліна сямейства сабачых з вострай мордай і доўгім пушыстым хвастом, а таксама яе футра. *Л. і ў сне курэй лічыць* (прыказка). **2.** *перан.* Хітры, лісліві чалавек. ‖ *прым.* **лісі́ны**, -ая, -ае.

**ЛІСАХВО́СТ**, -у, *ДМ* -сце, *м.* Травяністая кармавая расліна сямейства злакавых з суквеццем у выглядзе мяцёлкі. ‖ *прым.* **лісахвóставы**, -ая, -ае.

**ЛІСІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -сі́ц, *ж.* **1.** Тое, што і *ліса* (у 1 знач.). **2.** Тоўстае круглае палена, якое кладзецца ўпоперак саней пры перавозцы бярвення (разм.). ‖ *памянш.* **лісі́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ЛІСІ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** *гл.* лісіца. **2.** Ядомы пласціністы грыб жоўтага колеру.

**ЛІСЛІ́ВІЦЬ**, -лі́ўлю, -лі́віш, -лі́віць; *незак., перад кім.* Крывадушна хваліць каго-н., дагаджаць каму-н. з карыслівай мэтай.

**ЛІСЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ліслівіць, дагаджае каму-н. з карысцю для сябе. *Л. хлопец.* **2.** Які змяшчае лісліваcць. *Лíслівая ўсмешка.* **3.** Ласкавы, угодлівы, які ўмее дагадзіць. *Л. голас* (разм.). ‖ *наз.* **лíслі́васць**, -і, *ж.*

**ЛІ́СНІК**, -у, *м.* Тое, што і *паслён.* ‖ *прым.* **лі́снікавы**, -ая, -ае.

**ЛІСТ**[1], -á *і* -у, *М* -сцé, *мн.* -ы́, -óў *і* (разм.) лі́сці, -яў, *м.* **1.** -á. Орган паветранага жыўлення і газаабмену раслін у выглядзе тонкай, звычайна зялёнай пласцінкі на чаранку. *Кляновы л.* **2.** -у, *у знач. зб.* Лісце. *Лаўровы л.* ◊ **Лістам слацца** (разм., неадабр.) — ліслíва дагаджаць. ‖ *памянш.* **лістóк**, -тќа, *мн.* -тќі, -тќоў, *м.* (да 1 знач.).

**ЛІСТ**[2], -á, *М* -сцé, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Тонкі плоскі кусок якога-н. матэрыялу. *Л. бляхі. Л. паперы.* **2.** Пісьмо. *Атрымаць л.* **3.** Дакумент, якім што-н. пацвярджаецца або загадваецца (спец.). ○ **Выканаўчы ліст** — дакумент на права спагнання паводле рашэння суда. **Тытульны ліст** — старонка ў пачатку кнігі, дысертацыі і пад., дзе надрукавана яе назва. ◊ **З ліста** (іграць, чытаць) — адразу, без папярэдняй падрыхтоўкі. ‖ *памянш.* **лістóк**, -тќа, *мн.* -тќі, -тќоў, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**ЛІСТАВЫ́**[1], -а́я, -óе. **1.** Які мае адносіны да ліста[1], у лістах. *Л. тытунь.* **2.** Пакрыты лісцем. *Л. лес.*

**ЛІСТАВЫ́**[2], -а́я, -óе. Які мае форму ліста[2] (у 1 знач.). *Ліставое жалеза.*

**ЛІСТА́Ж**, -у́, *м.* Аб'ём кнігі, брашуры і пад. ў аркушах. *Л. кнігі.* ‖ *прым.* **ліста́жны**, -ая, -ае.

**ЛІСТАПА́Д**, -а *і* -у, *М* -дзе, *м.* **1.** -а. Адзінаццаты месяц каляндарнага года. *Пачатак лістапада.* **2.** -у. Ападанне лісця восенню, а таксама час гэтага ападання. ‖ *прым.* **лістапа́дны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ЛІСТО́К**[1] *гл.* ліст[1].

**ЛІСТО́К**[2], -тќа, *мн.* -тќі, -тќоў, *м.* **1.** *гл.* ліст[2]. **2.** Бланк для запісу чаго-н. *Кантрольны л.*

**ЛІСТО́ТА**, -ы, *ДМ* -тóце, *ж., зб.* Тое, што і *лісце.*

**ЛІСТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -тóўцы, *мн.* -і, -тóвак, *ж.* Друкаваны або рукапісны лісток з тэкстам (выявай) звычайна злаба-

дзённага агітацыйна-палітычнага або інфармацыйнага зместу. *Л. паўстанцаў.*

**ЛІСТО́ЎНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Хвойнае дрэва з мяккай ападаючай на зіму іглііцай і каштоўнай моцнай драўнінай. *Сібірская л.* ‖ *прым.* **лісто́ўнічны**, -ая, -ае.

**ЛІ́СЦЕ**, -я *і* **ЛІСЦЁ**, -я́, *н., зб.* Лісты раслін. ‖ *прым.* **лі́сцевы**, -ая, -ае *і* **лісцёвы**, -ая, -ае. *Лісцевая (лісцёвая) падсцілка.*

**ЛІ́СЦЕВЫ** *і* **ЛІСЦЁВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* лісце. **2.** Пра дрэвы з лістамі; *проціл.* хвойны. *Лісцевае дрэва.* **3.** Які складаецца з такіх дрэў. *Лісцевы лес.*

**ЛІСЦЯНЫ́**, -а́я, -о́е (разм.). **1.** Пра дрэвы з лістамі. *Лісцяныя дрэвы.* **2.** Які складаецца з лісця. *Лісцяная падсцілка.*

**ЛІСЯНЯ́** *і* **ЛІСЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня лісы.

**ЛІ́ТАВАЦЦА**, -туюся, -туешся, -туецца; -туйся; *незак., над кім-чым.* Берагчы, праяўляць літасць, міласэрнасць.

**ЛІ́ТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; *незак., каго.* Берагчы каго-н.; шкадаваць.

**ЛІТАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* **1.** Друкаванне з плоскай паверхні каменя, на якой зроблены малюнак. **2.** Прадпрыемства, дзе друкуюць такім спосабам. **3.** Малюнак, зроблены такім спосабам. ‖ *прым.* **літагра́фскі**, -ая, -ае *і* **літаграфі́чны**, -ая, -ае. *Літаграфскі камень. Літаграфічны партрэт.*

**ЛІ́ТАРА**, -ы, *мн.* -ы, -тар, *ж.* **1.** Знак азбукі. **2.** У друкарскім наборы — металічны брусочак з рэльефным відарысам друкаванага знака (спец.). ◊ **Літара ў літару** — вельмі дакладна. ‖ *прым.* **лі́тарны**, -ая, -ае.

**ЛІТАРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Тое, што і *даслоўны. Л. пераклад.* **2.** Дакладны, прамы, не пераносны. *Л. сэнс.* ‖ *наз.* **літара́льнасць**, -і, *ж.*

**ЛІТАРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які прафесійна займаецца літаратурнай працай; пісьменнік. ‖ *прым.* **літара́тарскі**, -ая, -ае.

**ЛІТАРАТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ту́р, *ж.* **1.** Сукупнасць мастацкіх твораў пісьменнасці, якія маюць грамадскае і пазнавальнае значэнне. *Навуковая л. Мемуарная л.* **2.** Від мастацтва, характэрнай рысай якога з'яўляецца стварэнне мастацкіх вобразаў пры дапамозе слова. *Беларуская мастацкая л.* **3.** Сукупнасць твораў якой-н. галіны ведаў, па якім-н. спецыяльным пытанні. *Палітычная л. Тэхнічная л.* ‖ *прым.* **літарату́рны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Літаратурныя помнікі. Літаратурныя колы.*

**ЛІТАРАТУРАЗНА́ВЕЦ**, -на́ўца, *мн.* -на́ўцы, -на́ўцаў, *м.* Спецыяліст у галіне літаратуразнаўства.

**ЛІТАРАТУРАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Навука аб мастацкай літаратуры, яе тэорыі, гісторыі і літаратурнай крытыцы. ‖ *прым.* **літаратуразна́ўчы**, -ая, -ае.

**ЛІТАРАТУ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* літаратура. **2.** Які адпавядае нормам літаратурнай мовы. *Л. стыль.* ○ **Літаратурная мова** — унармаваная форма агульнанароднай мовы, пісьмовыя і вусныя нормы якой з'яўляюцца агульнаабавязковымі. ‖ *наз.* **літарату́рнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ЛІ́ТАСЦІ́ВЫ**, -ая, -ае. Схільны да літасці; спагадлівы. *Літасцівае сэрца.* ‖ *наз.* **лі́тасці́васць**, -і, *ж.*

**ЛІ́ТАСЦЬ**, -і, *ж.* Добрыя, велікадушныя адносіны; міласць, спагада. ◊ **Без літасці** — 1) жорстка, строга, сурова; 2) неміласэрна, не шкадуючы.

**ЛІТА́ЎРЫ**, -аў, *адз.* -а, -ы, *ж.* Ударны музычны інструмент у выглядзе двух паўшар'яў, абцягнутых скурай. ◊ **Біць у літаўры** — святкаваць перамогу.

**ЛІТАЎРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на літаўрах.

**ЛІТО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне літаграфіі.

**ЛІТО́ЎКА**[1], -і, *ДМ* -то́ўцы, *мн.* -і, -то́вак, *ж.* Від касы з доўгім палатном і высокім касільнам.

**ЛІТО́ЎКА**[2] *гл.* літоўцы.

**ЛІТО́ЎЦЫ**, -аў, *адз.* -то́вец, -то́ўца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Літвы. ‖ *ж.* **літо́ўка**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *мн.* -і, -то́вак. ‖ *прым.* **літо́ўскі**, -ая, -ае.

**ЛІТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адзінка вымярэння аб'ёму і ёмістасці, роўная 1000 см$^3$, а таксама колькасць вадкасці такога аб'ёму. ‖ *прым.* **літро́вы**, -ая, -ае.

**ЛІТРА́Ж**, -у́, *м.* Умяшчальнасць пасудзіны ў літрах. *Л. бака.* ‖ *прым.* **літра́жны**, -ая, -ае.

**ЛІТРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* (разм.). Бутэлька ёмістасцю ў адзін літр. ‖ *прым.* **літро́вачны**, -ая, -ае.

**ЛІТУРГІ́Я**, -і, *ж.* Хрысціянскае набажэнства, у час якога робяць прычасце; імша, абедня. ‖ *прым.* **літургі́чны**, -ая, -ае *і* **літургі́йны**, -ая, -ае. *Літургічныя спевы. Літургійны год.*

**ЛІ́ТЫ**, -ая, -ае. Выраблены ліццём. *Літая сталь.*

**ЛІ́ЎНЕВЫ** *гл.* лівень.

**ЛІЎРЭ́Я**, -і, *мн.* -і, -рэ́й, *ж.* Форменная вопратка з галунамі для швейцараў, лакеяў, фурманаў. ‖ *прым.* **ліўрэ́йны**, -ая, -ае. *Л. лакей.*

**ЛІФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Верхняя частка жаночай сукенкі. ‖ *прым.* **лі́фны**, -ая, -ае *і* **лі́фавы**, -ая, -ае.

**ЛІФТ**, -а, *М* -фце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пад'ёмная машына з кабінай для перамяшчэння людзей, грузаў у шматпавярховых дамах, шахтах і пад. ‖ *прым.* **ліфтавы**, -ая, -ае.

**ЛІФЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік, які абслугоўвае ліфт. ‖ *ж.* **ліфцёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **ліфцёрскі**, -ая, -ае.

**ЛІ́ФЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прадмет жаночай бялізны, які аблягае грудзі; станік. ‖ *прым.* **ліфчыкавы**, -ая, -ае.

**ЛІ́ХА**, -а, *н.* **1.** Няшчасце, зло, бяда. *Да ўсякага л. прывыкнуць можна.* **2.** У фальклоры: нячыстая сіла, чорт. ◊ **Ведаць, пачым фунт ліха** (разм.) — пазнаць, як цяжка жыць у горы, нястачы. **Да ліха** (разм.) — вельмі многа. **Ліха яго бяры** (разм.) — адносіцца абыякава да чаго-н. **Не памінай (не памінайце) ліхам** (разм.) — не ўспамінай(успамінайце) блага. **Як на (тое) ліха** (разм.) — не ў пару, не да месца.

**ЛІХАДЗЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Той, хто чыніць ліха (у 1 знач.), зло, бяду. ‖ *ж.* **ліхадзе́йка**, -і, *ДМ* -дзе́йцы, *мн.* -і, -дзе́ек. ‖ *прым.* **ліхадзе́йскі**, -ая, -ае.

**ЛІХАЛЕ́ЦЦЕ**, -я, *н.* Час вялікай нягоды, няшчасця і гора. *Перажылі ваеннае л.*

**ЛІХАМА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* **1.** Хваравіты стан, які суправаджаецца гарачкай і дрыготкай. *Трэсціся як у ліхаманцы.* **2.** *перан.* Узбуджаны, трывожны стан, празмерна паспешлівая дзейнасць. *Біржавая л.* **3.** *разм.* Трасца (малярыя).

**ЛІХАМА́НКАВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які бывае пры ліхаманцы (у 1 знач.). *Л. стан.* **2.** *перан.* Вельмі ўсхваляваны, нервовы, празмерна паспешлівы. *Ліхаманкавая дзейнасць.* ‖ *наз.* **ліхама́нкавасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ЛІХА́ЦТВА**, -а, *н.* Паводзіны ліхача, залішняя адвага, безразважнасць, празмернае маладзецтва. *За л. за рулём адбіраюць правы.*

**ЛІХА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Рамізнік з франтаватым экіпажам на добрым кані (уст.). *Наняць ліхача.* **2.** Шафёр, вадзіцель, які грэбуе правіламі бяспекі язды. *З такім ліхачом боязна ехаць.* ‖ *прым.* **ліха́цкі**, -ая, -ае.

**ЛІХВЯ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Чалавек, які пазычае грошы пад вельмі высокія працэнты. ‖ *ж.* **ліхвя́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **ліхвя́рскі**, -ая, -ае.

**ЛІХВЯ́РСТВА**, -а, *н.* Занятак, дзейнасць ліхвяра.

**ЛІХІ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які можа ці здольны прычыніць бяду, нядобры, злы, дрэнны. *Л. чалавек.* **2.** Звязаны з цяжкім жыццём, перажываннямі. *Ліхая гадзіна.* ‖ *наз.* **лі́хасць**, -і, *ж.*

**ЛІ́ХТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Грузавое несамаходнае судна, прызначанае для пагрузкі і разгрузкі вялікіх суднаў ці мясцовых перавозак. ‖ *прым.* **ліхтарны**, -ая, -ае.

**ЛІХТА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Асвятляльны прыбор у выглядзе шкляного футарала. *Вулічны л. Электрычны л.* **2.** Шкляны праём у даху, а таксама зашклёны выступ у будынку. **3.** Сіняк, кровападцёк пад вокам (разм.). ‖ *памянш.* **ліхта́рык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **ліхта́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЛІХТА́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Той, хто наглядае за дзейнасцю і спраўнасцю ліхтароў (у 1 знач.). ‖ *ж.* **ліхта́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЛІХТУ́ГА**, -і, *ДМ* -ту́зе, *ж.* (разм.). Няшчаснае здарэнне, вялікая бяда.

**ЛІЦЭ́ЙНЫ** *гл.* ліць[2].

**ЛІЦЭ́ЙНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Майстэрня, цэх, дзе адліваюць металічныя вырабы.

**ЛІЦЕ́ЙШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы — спецыяліст па ліцейнай справе. ‖ *прым.* **ліце́йшчыцкі**, -ая, -ае.

**ЛІ́ЦЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Дакумент на права бясплатнага або льготнага праезду па чыгунцы ці іншых шляхах зносін (звычайна мае спецыяльнае літарнае абазначэнне). ‖ *прым.* **лі́церны**, -ая, -ае. *Л. білет.*

**ЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., лье́цца *і* ліе́цца; лі́ўся, ліла́ся, -ло́ся; ліся; *незак.* **1.** Цячы струменем. *Вада льецца з крана.* **2.** *перан.* Распаўсюджвацца ў паветры (пра святло, пах і пад.). **3.** *перан.* Лёгка і свабодна цячы (пра мову, гутарку і пад.); плаўна разносіцца, раздавацца (пра гукі і пад.). *Льецца гаворка. Лілася песня.*

**ЛІЦЦЁ**, -я́, *н.* **1.** *гл.* ліць[2]. **2.** *зб.* Літыя металічныя вырабы. *Чыгуннае л.*

**ЛІЦЬ**[1], лью, льеш, лье; льём, льяце́, льюць *і* лію́, ліе́ш, ліе́; ліём, ліяце́, лію́ць; лі́ў, ліла́, ліло́; лі; лі́ты; *незак.* **1.** *што.* Нахіляючы што-н. напоўненае, прымушаць цячы якую-н. вадкасць *Л. ваду на рукі.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Вельмі моцна цячы, ісці (разм.). *Дождж лье як з вядра* (аб праліўным дажджы). **3.** *перан.* Распаўсюджваць (гук, святло, пах). *Сонца лье цяпло.*

**ЛІЦЬ**[2], лью, льеш, лье; льём, льяце́, льюць *і* лію́, ліе́ш, ліе́; ліём, ліяце́, лію́ць; лі́ў, ліла́, ліло́; лі; *незак., што.* Вырабляць што-н. з расплаўленага рэчыва. *Л. гарматы.* ‖ *зак.* **вы́ліць**, -лью, -льеш, -лье; -літы; вы́лі. ‖ *наз.* **ліццё**, -я́, *н.*; *прым.* **ліце́йны**, -ая, -ае *і* **ліццёвы**, -ая, -ае. *Ліцейная вытворчасць. Ліцейны цэх. Ліццёвае прэсаванне.*

**ЛІЦЭІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Выхаванец ліцэя. ‖ *прым.* **ліцэі́сцкі**, -ая, -ае.

**ЛІЦЭ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Сярэдняя навучальная ўстанова з паглыбленым вывучэннем асобных прадметаў у некаторых краінах Заходняй Еўропы, Беларусі, Расіі і інш. **2.** *гіст.* Прывілеяваная мужчынская навучальная ўстанова ў дарэвалюцыйнай Расіі. ‖ *прым.* **ліцэ́йскі**, -ая, -ае.

**ЛІЦЭ́НЗІЯ**, -і, *мн.* -і, -зій, *ж.* (спец.). **1.** Дазвол на права выкарыстання чаго-н., на права вырабу якой-н. прадукцыі. *Латэнтная л.* ‖ *прым.* **ліцэнзі́йны**, -ая, -ае. *Ліцэнзійнае пагадненне.*

**ЛІ́ЧБА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Знак для абазначэння ліку. *Арабскія лічбы* (1, 2, 3 і г.д.). *Рымскія лічбы* (I, II, III і г.д.). **2.** Паказчык чаго-н., выражаны ў лічбах; сума, падлік. ‖ *прым.* **лі́чбавы**, -ая, -ае. *Л. код.*

**ЛІЧБАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* лічбаваць. **2.** Лічбавае абазначэнне чаго-н.

**ЛІЧБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *незак., што.* **1.** Абазначаць лічбамі; нумараваць. *Л. старонкі.* **2.** Пераводзіць інфармацыю ў двайковы код з дапамогай электронных сістэм. ‖ *наз.* **лічбава́нне**, -я, *н. Л. старонак кніг.*

**ЛІ́ЧБАВЫ**, -ая, -ае. **1.** Абазначаны лічбамі, выражаны ў лічбах. *Лічбавыя даныя. Л. вынік.* **2.** Які пераводзіць інфармацыю ў двайковы код з дапамогай электронных сістэм; прызначаны для апрацоўкі, захавання, перадачы і пад. такой інфармацыі. ○ **Лічбавая вылічальная машына** — вылічальная машына, якая пераўтварае велічыні, прадстаўленыя ў выглядзе набору лічбаў.

**ЛІ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У матэматыцы: лік у простых дробах, які стаіць над рысай і паказвае, з колькіх долей складаецца дроб; *проціл.* назоўнік. *У дробе 3/5 л. 3, а назоўнік 5.*

**ЛІЧЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). У дзіцячых гульнях: вершык з лічэннем, які вымаўляецца нараспеў і якім суправаджаецца размеркаванне ўдзельнікаў гульні.

**ЛІЧЫ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Апарат для аўтаматычнага падліку чаго-н. *Л. электрычнай энергіі.*

**ЛІЧЫ́ЛЬНІКІ**, -аў (уст.). Простая прылада для падліку ў выглядзе чатырохвугольнай рамы з нанізанымі на папярочныя металічныя пруткі рухомымі костачкамі. *Канторскія л.*

**ЛІЧЫ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая робіць падлік каго-, чаго-н. *Л. перапісу насельніцтва.* ‖ *ж.* **лічы́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЛІЧЫ́НКА**[1], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Адна з першых стадый развіцця некаторых жывёльных арганізмаў (чарвей, насякомых, рыб), якія адрозніваюцца па відзе і будове ад канчаткова сфарміраванай жывёліны. ‖ *прым.* **лічы́нкавы**, -ая, -ае.

**ЛІЧЫ́НКА**[2], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (спец.). Частка затвора вінтоўкі, якая замыкае канал ствала.

**ЛІЧЫ́ЦЦА**, лічу́ся, лі́чышся, лі́чыцца; *незак.* **1.** *кім-чым.* Расцэньвацца якім-н. чынам, успрымацца як-н. *Л. лепшым гаспадаром.* **2.** *з кім-чым.* Браць пад увагу, улічваць што-н. *Л. з думкамі членаў камісіі.* **3.** *чым і без дап.* Весці ўзаемны ўлік (паслуг, пазык, прэтэнзій і пад.). *Не будзем з гэтым л.* **4.** Знаходзіцца, быць дзе-н. *Л. ў адпачынку.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выражацца ў якой-н. колькасці. *Даходы лічацца ў мільёнах рублёў.* **6.** Размяркоўваць паміж сабой ролі ў гульні, карыстаючыся лічылкай (разм.). *Л. перад гульнёй.* ‖ *зак.* **палічы́цца**, палічу́ся, палі́чышся, палі́чыцца (да 2 і 6 знач.).

**ЛІЧЫ́ЦЬ**, лічу́, лі́чыш, лі́чыць; лі́чаны; *незак.* **1.** Называць лікі ў паслядоўным парадку. *Л. да ста.* **2.** Вызначыць колькасць, суму чаго-н. *Л. грошы.* **3.** *каго-што.* Прымаць у разлік, пад увагу. *Калі не л. некалькіх дзён непагоды, май быў добры.* **4.** *каго-што.* Рабіць якія-н. заключэнні, прызнаваць, успрымаць, расцэньваць. *Балота лічылі непраходным. Л. каго-н. добрым чалавекам.* ◊ **Лічыць ні за што** — зусім не лічыцца з кім-н., не паважаць каго-н. ‖ *зак.* **злічы́ць**, злічу́, злі́чыш, злі́чыць; злі́чаны (да 1 і 2 знач.) *і* **палічы́ць**, -лічу́, -лі́чыш, -лі́чыць; -лі́чаны (да 2 і 4 знач.). ‖ *наз.* **лічэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.) *і* **лік**, -у (да 1 і 2 знач.).

**ЛІЧЭ́БНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У граматыцы: часціна мовы, якая абазначае колькасць або парадак прадметаў пры іх лічэнні. *Колькасныя лічэбнікі. Зборныя лічэбнікі.*

**ЛІША́Й**[1], -ю, *мн.* -шаі́, -шаёў, *м.* Назва хваробы скуры з дробным свярбячым сыпам. *Стрыгучы л. Лускаваты л.* ‖ *прым.* **ліша́йны**, -ая, -ае.

**ЛІША́Й**[2], -я́, *мн.* -шаі́, -шаёў *і* **ЛІША́ЙНІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Расліна ніжэйшага тыпу, якая складаецца з грыба і водарасці, утвараючы адзін арганізм; расце на глебе, камянях і кары дрэў. ‖ *прым.* **ліша́йнікавы**, -ая, -ае.

**ЛІ́ШАК**, -шку, *мн.* -шкі, -шкаў, *м.* Што-н. лішняе, тое, што перавышае якую-н. норму, меру. *Л. хлеба. Праца акупілася з лішкам.* ◊ **З лішкам** — зверх якой-н. нормы.

**ЛІ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Тое, што і *лішак.* **2.** Няцотны лік (разм.). *Гуляць у цот і лішку.*

**ЛІ́ШКАВЫ**, -ая, -ае. Які перавышае патрэбнасць, норму; збыткоўны. *Лішкавая рабочая сіла.*

**ЛІ́ШНЕ**, *прысл.* Вельмі многа, празмерна, залішне. *На фронце не будзеш л. спаць. Не было патрэбы л. гаварыць.*

**ЛІ́ШНІ**, -яя, -яе. **1.** Збыткоўны, які перавышае адпаведную колькасць, празмерны. *Лішнія грошы. Лішнія турботы.* **2.** Непатрэбны, бескарысны. *Лішнія рэчы.* **3.** Дадатковы, пабочны. *Сказаць л. раз не шкодзіць.* ◊ **Без лішніх слоў** — не размаўляючы доўга.

**ЛІ́ШНІЦА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Празмернасць, лішак. *У хаце лішніцы не было.* **2.** Лішняе. *Сказаць лішніцу.*

**ЛІ́ШТВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Накладная планка вакол дзвярнога ці аконнага праёма. *Фігурная л.* **2.** Металічная накладная пласцінка з шчылінай для ключа на дзвярах, шуфлядах і пад. **3.** Тое, што і *плінтус.* **4.** Падгорнутая або нашытая палоска матэрыі для аддзелкі, падрубкі. ‖ *памянш.* **ліштвачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **ліштвяны́**, -а́я, -о́е.

**ЛІЯ́НА**, -ы, *мн.* -ы, ліян, *ж.* Павойная кустовая або дрэвавая расліна, пашыраная галоўным чынам у трапічных і субтрапічных лясах. ‖ *прым.* **ліянавы**, -ая, -ае. *Л. лес.*

**ЛОБ**, ілба *і* (пасля галосных) лба, *мн.* ілбы́ *і* (пасля галосных) лбы, ілбо́ў (лбоў), *м.* Верхняя надвочная частка твару чалавека або морды жывёлы. *Адкрыты л.* ◊ **Лоб у лоб** (разм.) — насустрач адзін аднаму ісці, сыходзіцца і пад. **У лоб** — 1) з фронту, франтальным ударам. *Атакаваць праціўніка ў л.;* 2) залішне прамалінейна (разм.). *Спытаць у л.* ‖ *памянш.* **лабо́к**, -бка́, *мн.* -бкі́, -бко́ў, *м.* ‖ *прым.* **ло́бны**, -ая, -ае. *Лобная косць.*

**ЛО́БЗІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тонкая вузкая пілка ў рамцы для выпілоўвання ўзораў. ‖ *прым.* **ло́бзікавы**, -ая, -ае.

**ЛО́БІ**, *нескл., н.* Група прадстаўнікоў эканамічна моцных структур, якія аказваюць уплыў на палітыку дзяржавы. ‖ *прым.* **лабі́сцкі**, -ая, -ае.

**ЛО́БНЫ**[1], -ая, -ае. У выразе: **лобнае месца** — узвышэнне, з якога ў старажытнасці аб'яўляліся царскія ўказы і на якім адбываліся пакаранні смерцю.

**ЛО́БНЫ**[2] *гл.* лоб.

**ЛОГ**, -у, *М* ло́гу *і* лагу́, *мн.* лагі́, лагоў, *м.* Шырокі доўгі яр з адхоннымі схіламі. *Ісці логам. Спусціцца ў л.* ‖ *памянш.* **лажо́к**, -жка́, *мн.* -жкі́, -жко́ў, *м.* ‖ *прым.* **лагаві́**, -а́я, -о́е. *Лагавыя травы.*

**ЛО́ГАВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Паглыбленне ў зямлі, якое служыць жыллём звеpy. *Воўчае л.* **2.** *перан.* Месца размяшчэння варожых сіл (разм.). *Фашысцкае л.* **3.** *перан.* Убогае жыллё; неахайная пасцель чалавека (разм.).

**ЛО́ГАВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *н.* **1.** Тое, што і *логава.* **2.** Тое, што і *лежня. Л. цюленяў.*

**ЛО́ГІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па логіцы.

**ЛО́ГІКА**, -і, *ДМ* -гіцы, *ж.* **1.** Навука аб законах і формах мыслення. *Дыялектычная л.* **2.** Ход разважанняў, вывадаў. *Выдатная л.* **3.** Унутраная заканамернасць чаго-н. *Л. падзей.* ‖ *прым.* **лагі́чны**, -ая, -ае.

**ЛО́ДАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто не хоча працаваць; гультай.

**ЛО́ДАРНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Ухіляцца ад працы, гультаяваць. ‖ *наз.* **ло́дарнічанне**, -я, *н.*

**ЛО́ДАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** *гл.* лодка. **2.** звычайна *мн.* Адкрытыя жаночыя туфлі без раменьчыка і зашпількі. *Яна прыгожа прытупвала сваімі новенькімі лодачкамі.*

**ЛО́ДАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца перавозкай на лодцы; той, хто плавае на лодцы. ‖ *ж.* **ло́дачніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЛО́ДЖЫЯ**, -і, *мн.* -і, -джый, *ж.* **1.** Род балкона, паглыбленага ў фасад будынка. *Кватэра з лоджыямі.* **2.** Адкрытая галерэя, якая прымыкае да будынка. ‖ *прым.* **ло́джыевы**, -ая, -ае.

**ЛО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Невялікае судна. *Веславая л. Маторная л.* **2.** Назва некаторых відаў ваенных суднаў. *Падводная л.* ‖ *памянш.* **ло́дачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **ло́дачны**, -ая, -ае. *Лодачная станцыя.*

**ЛО́ЖА**[1], -ы, *мн.* -ы, лож, *ж.* **1.** Месца ў глядзельнай зале, аддзеленае перагародкай для невялікай колькасці асоб, а таксама наогул месца (у зале пасяджэнняў, на стадыёне), прызначанае для прадстаўнікоў СМІ, гасцей і інш. *Тэатральная л.* **2.** Аддзяленне масонскай арганізацыі, а таксама месца яе тайных сходаў. *Масонская л.*

**ЛО́ЖА**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Месца для спання, пасцель (уст.). **2.** Паглыбленне ў грунце, па якім цячэ водны паток. *Л. ракі.* ◊ **Пракрустава ложа** (кніжн.) — мерка, пад якую сілком падганяюць што-н.

**ЛО́ЖА**[3], -ы, *мн.* -ы, лож, *ж.* Драўляная частка ружжа, да якой прымацаваны ствол. *Л. ружжа.*

**ЛО́ЖАК**, -жка, *мн.* -жкі, -жкаў, *м.* Мэбля для спальні — доўгая рама з ножкамі і дзвюма спінкамі, на якую кладуцца матрац і пасцельныя рэчы. ‖ *прым.* **ло́жкавы**, -ая, -ае.

**ЛО́ЗУНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Заклік, зварот, які выражае кіруючую ідэю, палітычнае патрабаванне. *Баявы л.* **2.** Плакат з такім заклікам. *Дэманстранты неслі лозунгі.* **3.** Вядучы, галоўны прынцып чаго-н. ‖ *прым.* **ло́зунгавы**, -ая, -ае.

**ЛОЙ**, ло́ю, *м.* Нутраны тлушч (авечы, ялавічны). *Мазаць бліны лоем.* ‖ *прым.* **ло́евы**, -ая, -ае.

**ЛО́КАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кучаравая ці завітая пасма валасоў.

**ЛО́КАЦЬ**, ло́кця, *мн.* ло́кці, ло́кцяў, *м.* **1.** Месца згібу рукі, дзе злучаецца плечавая косць з касцямі перадплечча. *Узяць за л. Блізка л., ды не ўкусіш* (прыказка). **2.** Старадаўняя мера даўжыні, роўная прыблізна 0,5 м. ◊ **Кусаць (сабе) локці** — шкадаваць аб чым-н. упушчаным, непапраўным. **Пачуццё локця** — пачуццё сяброўства і ўзаемнай падтрымкі. ‖ *прым.* **ло́кцевы**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **лакцяві́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**ЛО́КШЫНА**, -ы, *ж.* Выраб з пшанічнай мукі ў выглядзе тонкіх высушаных палосак цеста, а таксама страва, прыгатаваная з такога вырабу. ‖ *прым.* **ло́кшынавы**, -ая, -ае.

**ЛОМ**[1], -а, *мн.* ламы́, -о́ў, *м.* Металічны завостраны стрыжань, якім разбіваюць, ломяць што-н. цвёрдае. *Калоць лёд ломам.* ‖ *памянш.* **ло́мік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ЛОМ**[2], -у, *м., зб.* Ломаныя ці прыгодныя толькі для перапрацоўкі (пераважна металічныя) прадметы. *Жалезны л. Збіраць л.* **2.** Тое, што і *ламачча* (у 1 знач.). ‖ *прым.* **ло́маны**, -ая, -ае.

**ЛО́МКА**, -і, *ДМ* -мцы, *ж.* **1.** *гл.* ламаць. **2.** *спец.* Фізічныя і псіхічныя расстройствы, якія развіваюцца ў хворых на наркаманію і алкагалізм праз некаторы час пасля спынення прыёму наркотыкаў, алкаголю або памяншэння іх дозы.

**ЛО́МКІ**, -ая, -ае. **1.** Які лёгка ломіцца, крохкі. *Л. лёд.* **2.** Няўстойлівы, пераменлівы (пра голас). ‖ *наз.* **ло́мкасць**, -і, *ж. Л. голасу.*

**ЛО́НА**, -а, *н.* **1.** Улонне. **2.** *уст.* Грудзі ці чэрава жанчыны як сімвал мацярынства. *Мацярынскае л.* **3.** *перан., чаго.* Нетры зямлі, вады. **4.** *перан.* Тое, што з'яўляецца прытулкам, прыстанішчам для каго-, чаго-н. ◊ **У лона** *чаго, у знач. прыназ. з Р* (кніжн.) — у сферу якой-н. дзейнасці. *У лона царквы.* ‖ *прым.* **ло́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *Лонное зрашчэнне.*

**ЛО́ПАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Шырокі плоскі канец чаго-н. *Л. вясла.* **2.** Рабочая, плоскай формы частка суднавых колаў, грабных і паветраных вінтоў. *Л. кола турбіны.* ‖ *прым.* **ло́пасцевы**, -ая, -ае.

**ЛО́ПАТ** *гл.* лапатаць.

**ЛО́ПАЦЕНЬ**, -патня, *мн.* -патні, -патняў, *м.* **1.** Той, хто многа гаворыць, лапоча (разм., пагард.). **2.** Няроўнасць у адкляпанай касе. *Першы раз кляпаў касу і нагнаў лопатняў.*

**ЛО́ПАЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ецца; *незак.* **1.** Даваць трэшчыны, ірвацца з трэскам, надзімаючыся разрывацца і знікаць. *Лёд лопаецца. Шклянка лопаецца.* **2.** *перан.* Цярпець крах, поўную няўдачу (разм.). *Лопаюцца планы.* ◊ **Лопацца са смеху** (разм.) — знемагаць ад смеху.

**ЛО́ПАЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* Лапатаць крыламі (пра птушак). ‖ *аднакр.* **ло́пнуць**, -не. ‖ *наз.* **ло́панне**, -я, *н.*

**ЛО́ПАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *незак., што* (разм.). Прагна есці. ‖ *зак.* **зло́паць**, -аю, -аеш, -ае. *Місу крупені злопаў.*

**ЛО́ПНУЦЬ**[1], -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* **1.** Даць трэшчыну; трэснуўшы, разламацца, разадрацца, парвацца. *Лопнуў графін. Лопнула струна.* **2.** *перан.* Пацярпець поўную няўдачу, крах (разм.). *Лопнулі надзеі.* ◊ **Лопнуць са смеху** (разм.) — зайсціся моцным смехам. **Цярпенне лопнула** (разм.) — няма больш сіл цярпець, вытрымка скончылася. ‖ *незак.* **ло́паць**, -аю, -аеш, -ае.

**ЛО́ПНУЦЬ**[2] *гл.* лопаць[1].

**ЛО́ПУХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Травяністая расліна сямейства складанакветных з буйным шырокім лісцем і ўчэпістымі калючымі галоўкамі, а таксама ліст гэтай расліны; дзядоўнік. ‖ *прым.* **ло́пухавы**, -ая, -ае.

**ЛОРД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* У Англіі: вышэйшы дваранскі наследны тытул або тытул вышэйшых службовых асоб, а таксама асоба, якая носіць гэты тытул. *Л.-канцлер. Л.-мэр.*

**ЛО́СКАТ**, -у, *М* -каце, *м.* (разм.). Тое, што і *козыт.* ‖ *прым.* **ло́скатны**, -ая, -ае.

**ЛОСЬ**, ляся́, *мн.* ласі́, -ёў, *м.* Буйная жывёліна сямейства аленевых з шырокімі разгалістымі рагамі (у самцоў). ‖ *прым.* **ласі́ны**, -ая, -ае *і* **ласёвы**, -ая, -ае. *Ласінае мяса. Ласёвая шкура.*

**ЛОТ**[1], -а, *М* ло́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Навігацыйны прыбор для вымярэння глыбіні мора з борта судна. *Ручны л.* ‖ *прым.* **ло́тавы**, -ая, -ае.

**ЛОТ**[2], -а, *М* ло́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Руская мера вагі, роўная 12,8 г, якая існавала да ўвядзення метрычнай сістэмы.

**ЛОТ**[3], -а, *М* ло́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адзінка вымярэння (тавару) пры аўкцыённым продажы.

**ЛО́ТАС**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а. Паўднёвая травяністая водная расліна сямейства гарлачыкавых з буйнымі прыгожымі кветкамі. **2.** -у. Зараснік гэтай расліны. ‖ *прым.* **ло́тасавы**, -ая, -ае. *Сямейства лотасавых* (наз.).

**ЛО́ТАЦЬ**, -і, *ж.* Шматгадовая травяністая расліна сямейства казяльцовых з

жоўтымі кветкамі, якая расце на балотах, берагах сажалак і інш. *Л. расцвіла.* ‖ *прым.* **лóтацевы**, -ая, -ае.

**ЛÓТРА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -аў (разм., лаянк.). Тое, што і *латруга.*

**ЛОЎЖ**, лаўжá, *мн.* лаўжы́, лаўжóў, *м.* Куча сухога галля. *Ссечанае галлё сцягвалі ў л.*

**ЛÓЎКІ**, -ая, -ае. **1.** Спрытны, умелы. *Л. варатар.* **2.** Выкрутлівы, які знаходзіць выйсце з цяжкага становішча. *Гэта быў л. гаспадарнік.* **3.** Выгадны, зручны. *Лоўкае сядло.* ‖ *наз.* **лóўкасць**, -і, *ж.*

**ЛÓЎЛЯ** *гл.* лавіць.

**ЛÓЎЧЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Прывучаны да лоўлі, палявання. *Лоўчыя сабакі.* **2.** Прызначаны для лоўлі звяроў. *Лоўчыя ямы.*

**ЛÓЎЧЫ**[2], -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* (гіст.). У Расіі да 17 ст.: службовая асоба, якая ведала дварцовым паляваннем і рыбнай лоўляй.

**ЛÓЦМАН**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая праводзіць судны па фарватары. ‖ *прым.* **лóцманскі**, -ая, -ае.

**ЛÓЦМАН**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікая марская рыба, якая суправаджае на далёкія адлегласці караблі і буйных рыб, асабліва акул.

**ЛÓЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Раздзел суднаваджэння — апісанне мораў, водных шляхоў, узбярэжжаў, гідралагічных, метэаралагічных і іншых умоў, а таксама навігацыйны дапаможнік, які ўтрымлівае такое апісанне.

**ЛУБ**, -у, *м.* **1.** Валакністая тканка раслін, па якой перамяшчаюцца арганічныя рэчывы (спец.). **2.** Пласт, кавалак кары ліпы, вяза і іншых ліставых дрэў разам з валакністай унутранай часткай. **3.** Валокны некаторых раслін (лёну, канапель), якія ідуць на выраб пражы. ‖ *прым.* **лýбавы**, -ая, -ае, **лубяны́**, -áя, -óе *і* **лýбачны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Лубавае (лубяное) валакно. Лубяная (лубачная) каробка* (зробленая з лубу; у 2 знач.).

**ЛÝБАЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* луб, лубок. **2.** Надрукаваны з лубкоў (у 4 знач.). *Лубачныя карцінкі.* ○ **Лубачная літаратура** — 1) танныя і прымітыўныя па змесце масавыя выданні, што выходзілі ў дарэвалюцыйнай Расіі (гіст.); 2) прымітыўная літаратура, разлічаная на непатрабавальны густ (неадабр.).

**ЛÝБІН**, -у, *м.* Травяністая расліна сямейства бабовых, якая высяваецца для ўгнаення глебы і на корм жывёле. ‖ *прым.* **лýбінавы**, -ая, -ае.

**ЛУБÓК**, -бкá, *мн.* -бкі́, -бкóў, *м.* **1.** Тое, што і *луб* (у 2 знач.). **2.** Ручны кораб з лубу. *Ісці па ягады з лубкамі.* **3.** Тонкія дошчачкі, якія накладаюцца на месцы касцявога пераломy. *Нага ў лубках.* **4.** Ліпавая дошка, на якой гравіравалася карціна для друкавання, а таксама карціна такога вырабу, якая вызначалася прымітыўнасцю або даступнасцю вобразаў. *Рускі л.* ‖ *прым.* **лубкóвы**, -ая, -ае *і* **лýбачны**, -ая, -ае.

**ЛУБЯНÉЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -éе; *незак.* (разм.). Станавіцца цвёрдым, як луб (у 1 і 2 знач.). ‖ *зак.* **залубянéць**, -éе *і* **злубянéць**, -éе.

**ЛУБЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Ручны кораб з лубу (у 2 знач.), бяросты для захоўвання, пераносу, упакоўкі чаго-н.

**ЛУБЯНЫ́**, -áя, -óе. **1.** *гл.* луб. **2.** Цвёрды, нягнуткі, каляны на вобмацак. *Лубяная тканіна.* **3.** Пра расліны, якія маюць валакністую тканку, луб (у 2 і 3 знач.). *Лубяныя культуры.*

**ЛУГ**[1], -у, *М* лýзе, *мн.* -і́, -óў, *м.* Сенажаць, пераважна заліўная. *Уздоўж Нёмана цягнуліся бяскрайнія лугі. Альпійскія лугі* (горныя). ‖ *памянш.* **лужóк**, -жкá, *мн.* -жкі́, -жкóў, *м.* ‖ *прым.* **лугавы́**, -áя, -óе.

**ЛУГ**[2], -у, *М* лýзе, *м.* Едкі раствор, прыгатаваны з попелу, залітага варам, які ўжыв. для мыцця бялізны, галавы і інш.; шчолак (гіст.). ‖ *прым.* **лýгавы**, -ая, -ае.

**ЛУГАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* Невялікі луг сярод іншых угоддзяў. *Пасвіць коней на лугавіне.* ‖ *памянш.* **лугаві́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **лугаві́нны**, -ая, -ае.

**ЛУГАВÓДСТВА**, -а, *н.* Апрацоўка і выкарыстанне лугоў, сенажацей, пашы; галіна раслінаводства. ‖ *прым.* **лугавóдчы**, -ая, -ае.

**ЛÝДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Тое, што і *палуда.*

**ЛÝДЖАНЫ**, -ая, -ае. Пакрыты палудай. *Л. самавар.*

**ЛУДЖЭ́ННЕ** *гл.* лудзіць.

**ЛУДЗІ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Майстар, які займаецца луджэннем. ‖ *прым.* **лудзі́льшчыцкі**, -ая, -ае.

**ЛУДЗІ́ЦЬ**, луджý, лýдзіш, лýдзіць; лýджаны; *незак., што.* Пакрываць палудай. *Л. медную пасуду.* ‖ *зак.* **вы́лудзіць**, -луджу, -лудзіш, -лудзіць; -луджаны *і* **палудзі́ць**, -луджý, -лýдзіш, -лýдзіць; -лýджаны. ‖ *наз.* **луджэ́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **лудзі́льны**, -ая, -ае.

**ЛÝЖА**, -ы, *мн.* -ы, луж, *ж.* Тое, што і *лужына.*

**ЛУЖÓК** *гл.* луг[1].

**ЛÝЖЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -жын, *ж.* **1.** Невялікая ўпадзіна, напоўненая вадой. *Лужыны на дарогах.* **2.** Разлітая на паверхні чаго-н. вадкасць. *Л. на падлозе.* ◊ **Сесці ў лужыну** (разм.) — пацярпець няўдачу; апынуцца ў няёмкім становішчы. ‖ *памянш.* **лýжынка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**ЛУЖЫЧА́НЕ**, -чáн, *адз.* лужычáнін, -а, *м.* Заходнеславянская народнасць, якая жыве ў Германіі; лужыцкія сербы. ‖ *ж.* **лужычáнка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **лýжыцкі**, -ая, -ае.

**ЛÝЗА**, -ы, *мн.* -ы, луз, *ж.* Адтуліна з падвешаным сеткаватым мяшэчкам на краі борта більярднага стала, у якую падае шар. ‖ *прым.* **лýзны**, -ая, -ае.

**ЛУЗА́Н**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* (разм.). Арэх, які сам вылузаўся з шалупіння.

**ЛУЗА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; лýзаны; *незак., што.* **1.** Разгрызаючы, ачышчаць ад шалупін і есці. *Л. гарбузікі.* **2.** Тое, што і *лушчыць* (у 1 знач.). *Л. стручкі гароху.* ‖ *зак.* **аблузáць**, -áю, -áеш, -áе; -áны. ‖ *наз.* **лузáнне**, -я, *н.*

**ЛУЗГА́**, -і́, *ж., зб.* (разм.). Шалупінне ад гарбузікаў, сланечніку.

**ЛÝЗГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак., што* (разм.). Тое, што і *лузаць* (у 1 знач.). ‖ *наз.* **лýзганне**, -я, *н.*

**ЛУК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ручная зброя ў выглядзе гібкай дугі, сцягнутай цецівой, для пуску стрэл. *Спаборніцтвы па стральбе з лука.* ‖ *прым.* **лýчны**, -ая, -ае. *Лучнае поле* (для стральбы з лука).

**ЛУКА́**, -і́, *ДМ* луцэ́, *мн.* лýкі *і (з ліч. 2, 3, 4)* лукі́, лук, *ж.* **1.** Дугападобны паварот ракі, а таксама мыс, які абгінаецца ракой. **2.** Выгін пярэдняга ці задняга краю сядла.

**ЛУКАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* Тое, што і *лука* (у 1 знач.).

**ЛУКАМÓР'Е**, -я, *н.* Старая народная назва марскога заліва, бухты.

**ЛУКÝЛАЎСКІ**, -ая, -ае. У выразе: **лукулаўскі абед** (кніжн.) — багаты пачастунак, пір.

**ЛУНАЦЫ́ЗМ**, -у, *м.* Хваравіта-нервовы стан, пры якім чалавек у глыбокім сне можа хадзіць і падсвядома выконваць розныя дзеянні; самнамбулізм. ‖ *прым.* **лунацы́чны**, -ая, -ае.

**ЛУНА́ЦІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Хворы на лунацызм. ‖ *ж.* **лунацы́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ЛУНА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** Плаўна лятаць, рухацца ў паветры. *Буслы лунаюць у вышыні.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Павольна развявацца. *Лунаюць сцягі над плошчай.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Плысці, распаўсюджвацца (пра песні, музыку і пад.). *Песні лунаюць — настрой узнімаюць.* **4.** *перан.* Знаходзіцца ў стане ўзвышаных або далёкіх ад рэчаіснасці мар. ◊ **Лунаць у воблаках (у надхмар'і)** (неадабр.) — знаходзіцца ў летуценным стане, не заўважаючы навакольнага.

**ЛÝНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Невялікае паглыбленне ў чым-н.; ямка. *Л. зуба.* ‖ *памянш.* **лýначка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **лýначны**, -ая, -ае.

**ЛУНЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Драпежная птушка сямейства ястрабіных (з шаравата-белым апярэннем у дарослых самцоў); мышалоў. *Балотны л. Сівы як л.*

**ЛÝПА**, -ы, *мн.* -ы, луп, *ж.* Павелічальнае дваякавыгнутае шкло ў апраўе.

**ЛУПА́ТЫ**, -ая, -ае. Які мае выпучаныя вочы; вірлавокі. ‖ *наз.* **лупáтасць**, -і, *ж.*

**ЛУПІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -пі́н, *ж.* **1.** Вонкавая абалонка плода, семя. **2.** толькі *мн.* Адходы пасля ачысткі бульбы, пладоў, семя; шалупіны. *Кош лупін.*

**ЛУПІ́ННЕ**, -я, *н., зб.* Лупіны (у 2 знач.).

*Мэбля-м. Стыль-м.* **3.** Што-н. сучаснае, моднае (разм.). *Пагоня за мадэрнам.*

**МАДЭ́РНАВЫ** *і* **МАДЭРНО́ВЫ**, -ая, -ае. Сучасны і модны. *Мадэрнавыя танцы.*

**МАДЭРНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Удасканаліць (удасканальваць) што-н. у адпаведнасці з найноўшымі патрабаваннямі, густамі. *М. цэх. М. абсталяванне.* **2.** Надаць (надаваць) рысы сучаснасці з'явам і прадметам мінулага. *М. народную мелодыю.* ‖ *наз.* **мадэрніза́цыя**, -і, *ж.*

**МАДЭРНІ́ЗМ**, -у, *м.* Агульная назва розных кірункаў у мастацтве канца 19 — пачатку 20 ст., якія абвясцілі разрыў з рэалізмам, адмаўленне ад старых форм і пошук новых эстэтычных прынцыпаў. ‖ *прым.* **мадэрні́сцкі**, -ая, -ае.

**МАДЭРНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік мадэрнізму. ‖ *ж.* **мадэрні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МАДЭ́РНЫ**, -ая, -ае. Сённяшні, сучасны.

**МАЁЛІКА**, -і, *ДМ* -ліцы, *ж.* **1.** Абпаленая каляровая гліна, пакрытая непразрыстай палівай. *Займацца маёлікай.* **2.** *зб.* Керамічныя вырабы, пакрытыя непразрыстай палівай. *Мастацкая м.* ‖ *прым.* **маёлікавы**, -ая, -ае.

**МАЁМАСЦЬ**, -і, *ж.* Тое, што належыць каму-н., знаходзіцца ў чыім-н. уладанні; уласнасць. *Нерухомая м. Асабістая м. Дзяржаўная м.* ‖ *прым.* **маёмасны**, -ая, -ае.

**МАЁМНЫ**, -ая, -ае. Заможны, багаты. *М. гаспадар.*

**МАЁНТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Зямельнае ўладанне памешчыка, а таксама панскі двор, сядзіба. *Панскі м.* ‖ *прым.* **маёнткавы**, -ая, -ае *і* **маянтко́вы**, -ая, -ае.

**МАЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Афіцэрскае званне, рангам вышэйшае за званне капітана, а таксама асоба, якая носіць такое званне. ‖ *прым.* **маёрскі**, -ая, -ае.

**МАЁЎКА**, -і, *ДМ* маёўцы, *мн.* -і, маёвак, *ж.* **1.** У дарэвалюцыйнай Расіі: нелегальны сход рабочых у дзень 1 Мая. **2.** Вясенняя загарадная прагулка, гулянне на ўлонні прыроды. *Выехаць на маёўку.*

**МАЖАРЫТА́РНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **мажарытарная сістэма** — сістэма выбараў, пры якой у лік выбраных трапляюць кандыдаты партыі, якая атрымала большасць галасоў у дадзенай акрузе.

**МАЖДЖЭ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Металічны таўкач.

**МАЖДЖЭ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак., што* (разм.). Драбіць, таўчы, раздрабляць.

**МАЖЛІ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *магчымы.* ‖ *наз.* **мажлі́васць**, -і, *ж.*

**МАЖНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* (разм.). Станавіцца тоўстым, мажным. *З гадамі пачынаю м.* ‖ *зак.* **памажне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**МАЖНЫ́**, -а́я, -о́е. Дзябёлы, поўны, моцнага целаскладу. *М. мужчына.*

**МАЖО́Р**, -у, *м.* **1.** Музычны лад бадзёрай, радаснай гукавой афарбоўкі, акорд якога грунтуецца на вялікай тэрцыі (спец.). **2.** *перан.* Вясёлы, радасны настрой (разм.). *Быць у мажоры.* ‖ *прым.* **мажо́рны**, -ая, -ае. *М. тон. М. настрой.*

**МАЗА́ІКА**, -і, *ДМ* -за́іцы, *ж.* Узор або малюнак з рознакаляровых кавалачкаў шкла, дрэва, мармуру і пад., шчыльна падагнаных адзін да аднаго. *Каляровая м. М. жыцця* (перан.). ‖ *прым.* **мазаі́чны**, -ая, -ае. *Мазаічная карціна.*

**МАЗАНІ́НА**, -ы, *ж.* Тое, што і *мазня.*

**МА́ЗАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Хата, пабудаваная з гліны або дрэва, абмазанага глінай. *Украінская м.* ‖ *прым.* **ма́занкавы**, -ая, -ае.

**МА́ЗАЦЦА**, ма́жуся, ма́жашся, ма́жацца; ма́жся; *незак.* **1.** Мазаць сябе чым-н. (крэмам, маззю і пад.). **2.** Рабіцца брудным, пэцкацца. **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Аб прадметах: пэцкаць пры дотыку. *Пафарбаваныя сцены мажуцца.* ‖ *зак.* **вы́мазацца**, -мажуся, -мажашся, -мажацца; -мажся (да 1 і 2 знач.), **зама́зацца**, -ма́жуся, -ма́жашся, -ма́жацца; -ма́жся (да 2 знач.), **нама́зацца**, -ма́жуся, -ма́жашся, -ма́жацца; -ма́жся (да 1 знач.) *і* **пама́зацца**, -ма́жуся, -ма́жашся, -ма́жацца; -ма́жся (да 1 знач.).

**МА́ЗАЦЬ**[1], ма́жу, ма́жаш, ма́жа; маж; ма́заны; *незак.* **1.** *што.* Пакрываць тонкім слоем чаго-н. тлустага або вадкага. *М. хлеб маслам. М. калёсы дзёгцем.* **2.** Тое, што і *пэцкаць* (у 1 знач.; разм.). *М. сшытак. М. рукі фарбай.* **3.** *што.* Няўмела маляваць або пісаць (разм.). ‖ *зак.* **зама́заць**, -ма́жу, -ма́жаш, -ма́жа; -ма́ж; -ма́заны (да 2 знач.), **зма́заць**, -ма́жу, -ма́жаш, -ма́жа; -ма́ж; -ма́заны (да 1 і 2 знач.), **нама́заць**, -ма́жу, -ма́жаш, -ма́жа; -ма́ж; -ма́заны *і* **пама́заць**, -ма́жу, -ма́жаш, -ма́жа; -ма́ж; -ма́заны (да 1 знач.). ‖ *аднакр.* **мазну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **ма́занне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**МА́ЗАЦЬ**[2], ма́жу, ма́жаш, ма́жа; маж; *незак.* (разм.). Рабіць промахі (пры стральбе, у гульні). *М. з ружжа.* ‖ *зак.* **прама́заць**, -ма́жу, -ма́жаш, -ма́жа; -ма́ж.

**МАЗГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; *незак.* (разм.). Думаць, меркаваць.

**МАЗГАВІ́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). Разумны, кемлівы, развадлівы. *М. хлопец.* ‖ *наз.* **мазгаві́тасць**, -і, *ж.*

**МАЗГАВЫ́** *гл.* мозг.

**МАЗГАЎНЯ́**, -і́, *ж.* (разм., груб.). Галава. *М. не варыць.*

**МАЗЖАЧО́К**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* Аддзел галаўнога мозга, які знаходзіцца ў патылічнай частцы чэрапа і адказвае за каардынацыю рухаў і раўнавагу. ‖ *прым.* **мазжачко́вы**, -ая, -ае.

**МАЗІ́ЛА**[1], -ы, *Д* -у, *Т* -ам, *М* -е, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -зі́л (разм.). Той, хто няўмела, дрэнна малюе, піша.

**МАЗІ́ЛА**[2], -ы, *Д* -у, *Т* -ам, *М* -е, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -зі́л (разм.). Пра таго, хто часта робіць промахі (пры стральбе, у гульні).

**МА́ЗКІ**, -ая, -ае. **1.** Аб які можна запэцкацца. *Мазкія сцены.* **2.** Які лёгка пэцкаецца, брудзіцца; маркі. *Белая тканіна мазкая.*

**МАЗНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* Пасудзіна для калёсnай мазі. ‖ *прым.* **мазні́чны**, -ая, -ае.

**МАЗНЯ́**, -і́, *ж.* (разм.). Няўмелае маляванне, неахайны малюнак, пісьмо; дрэнная, няўмелая работа. *М. ў сшытку.*

**МАЗО́К**, -зка́, *мн.* -зкі́, -зко́ў, *м.* **1.** Адзін рух пэндзля пры накладанні фарбы, а таксама слой фарбы, накладзены такім спосабам. **2.** Слой вадкага выдзялення, нанесены на шкло для мікраскапічнага даследавання.

**МАЗО́ЛІСТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты мазалямі. *Мазолістыя рукі.* ‖ *наз.* **мазо́лістасць**, -і, *ж.*

**МАЗО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак., што* (разм.). Націраць мазалі доўгай работай або хадзьбой. *М. рукі.* ◊ **Мазоліць вочы** *каму* (разм.) — дакучаць, назаляць пастаяннай прысутнасцю. **Мазоліць язык** (разм.) — упустую гаварыць. ‖ *зак.* **памазо́ліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены.

**МАЗО́ЛЬ**, -заля́, *мн.* -залі́, -залёў, *м.* Патаўшчэнне скуры ці пухір з вадкасцю ад працяглага трэння. *Рукі ў мазалях. Крывавы м.* ◊ **Жыць з мазаля** (разм.) — жыць працай. **Зарабіць сваім мазалём** (разм.) — нажыць сваёй працай. ‖ *прым.* **мазо́льны**, -ая, -ае. *М. пластыр* (для вывядзення мазалёў).

**МАЗУ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Польскі нацыянальны танец, а таксама музыка да яго. ‖ *прым.* **мазу́рачны**, -ая, -ае.

**МАЗУ́Т**, -у, *М* -зу́це, *м. і* **МАЗУ́ТА**, -ы, *ДМ* -зу́це, *ж.* Астаткі ад нафты пасля адгонкі з яе бензіну, газу і газаліну. ‖ *прым.* **мазу́тны**, -ая, -ае *і* **мазу́тавы**, -ая, -ае.

**МАЗЬ**, -і, *Т* ма́ззю, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Сумесь тлушчу з лекавымі сродкамі для націрання або намазвання. *Цынкавая м.* **2.** Густое тлустае рэчыва для змазкі чаго-н. *М. для абутку. Лыжная м.* ◊ **На мазі́** (разм.) — блізка да ажыццяўлення, завяршэння.

**МАІ́С**, -у, *м.* Тое, што і *кукуруза.* ‖ *прым.* **маі́савы**, -ая, -ае. *М. крухмал.*

**МАЙ**, -я *і* -ю, *м.* **1.** -я. Пяты месяц каляндарнага года. **2.** -ю. Зелень для ўпрыгожвання (разм.). ‖ *прым.* **ма́йскі**, -ая, -ае. *М. жук.*

**МАЙДА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Базар, базарная плошча (на поўдні Расіі, ва Украіне). ‖ *прым.* **майда́нны**, -ая, -ае.

**МА́ЙКА**, -і, *ДМ* ма́йцы, *мн.* -і, ма́ек, *ж.* Трыкатажная сарочка без рукавоў і каўняра.

**МА́ЙНА**, *выкл.* У мове такелажнікаў, будаўнікоў: выраз са знач. апускай уніз!

**МА́ЙСТАР**, -тра, *мн.* -тры́, -тро́ў, *м.* **1.** Спецыяліст у якім-н. рамястве, у якой-н. галіне вытворчасці. *М. па абутку. Выдатны м.* **2.** Кіраўнік асобнага ўчастка вытворчасці, цэха. *Зменны м.* **3.** Чалавек, які дасягнуў высокага майстэрства ў сва-

ёй справе. *М. жывапісу.* **4.** Званне, якое прысвойваецца выдатным спартсменам, а таксама асоба, якая мае такое званне. *М. спорту.* **5.** *на што* і *з інф.* Аб лоўкім, здатным да чаго-н. чалавеку (разм.). *М. на розныя штукі.* || *ж.* **майстрыха**, -і, *ДМ* -рысе, *мн.* -і, -рых (да 1 і 5 знач.). || *прым.* **майстроўскі**, -ая, -ае.

**МАЙСТАР-КЛАС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кароткатэрміновыя курсы найвышэйшага майстэрства ў якой-н. галіне, якія арганізуюцца або праводзяцца вядучымі, выдатнымі майстрамі.

**МАЙСТРАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., што.* Рабіць, вырабляць што-н., звычайна ручным спосабам. || *зак.* **змайстраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны *і* **вымайстраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны. || *наз.* **майстраванне**, -я, *н.*

**МАЙСТЭРНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* **1.** Вытворчае памяшканне. *Сталярная м. М. мастака.* **2.** Аддзел цэха ці завода. *Інструментальная м.*

**МАЙСТЭРСКІ**, -ая, -ае. Вельмі добра, дасканала зроблены. *Майстэрскае выкананне.*

**МАЙСТЭРСТВА**, -а, *н.* **1.** Прафесійны занятак; рамяство. *Вучыць майстэрству.* **2.** Вялікае ўменне, мастацтва ў якой-н. галіне. *Педагагічнае м.*

**МАК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Травяністая расліна сямейства макавых з высокім сцяблом і вялікімі, часцей за ўсё чырвонымі кветкамі. *Чырвоныя макі.* **2.** *зб.* Насенне гэтай расліны, якое ідзе ў ежу. ◊ **Дробным макам рассыпацца** *перад кім* (разм., неадабр.) — лісліва дагаджаць каму-н. **Сесці макам** (разм., неадабр.) — пацярпець няўдачу ў якой -н. справе. || *прым.* **макавы**, -ая, -ае. *Макавае зярнятка. Сямейства макавых* (наз.).

**МАКАВІНА**, -ы, *мн.* -ы, -він, *ж.* **1.** Адно сцябло маку. **2.** Адна галоўка маку. **3.** Адно зярнятка маку. **4.** Вершаліна дрэва. *М. сасны.* || *памянш.* **макавінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (да 1—3 знач.).

**МАКАВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -вішч *і* -аў, *н.* Месца, на якім рос мак.

**МАКАКА**, -і, *ДМ* -кацы, *мн.* -і,-как, *ж.* Невялікая вузканосая малпа, якая водзіцца ў Паўднёвай Азіі і Паўночнай Афрыцы.

**МАКАРАНІЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Замежнае слова або выраз, які пранік у родную мову ў нязменным выглядзе. || *прым.* **макаранічны**, -ая, -ае. *М. стыль.*

**МАКАРОНА**, -ы, *ж.* Харчовы прадукт з прэснага цеста ў выглядзе тонкіх трубачак. || *прым.* **макаронны**, -ая, -ае. *Макаронная фабрыка.*

**МАКАРОНІНА**, -ы, *мн.* -ы, -ронін, *ж.* Адна трубачка макароны.

**МАКАРОННІК**, -у, *м.* Запяканка з макароны.

**МАКАЎКА**, -і, *ДМ* -каўцы, *мн.* -і, -кавак, *ж.* **1.** Плод маку: каробачка, дзе знаходзіцца насенне. **2.** Купал царквы (разм.). *Зіхацелі царкоўныя макаўкі.* **3.** Верхняя частка, вяршыня чаго-н. (разм.). *Сухая м. дрэва.* **4.** Канец кораня конскага хваста.

**МАКАЦЁР**, -катра, *мн.* -катры, -катроў, *м.* Гліняная пасудзіна, вузкая ўнізе і шырокая зверху, у якой звычайна труць мак, ільняное, канаплянае семя і інш.

**МАКЕДОНЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Паўднёваславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Македоніі. || *ж.* **македонка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **македонскі**, -ая, -ае.

**МАКЕТ**, -а, *М* -кеце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мадэль, папярэдні ўзор чаго-н. *М. кнігі.* || *прым.* **макетны**, -ая, -ае.

**МАКЕТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; *незак.* Рабіць папярэдні ўзор, макет чаго-н. *М. зборнік артыкулаў.*

**МАКІНТОШ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лёгкае летняе паліто з непрамакальнай тканіны.

**МАКІЯЖ**, -у, *м.* Падкрэсліванне прыгажосці і своеасаблівасцей, а таксама маскіроўка асобных недахопаў твару з дапамогай касметычных сродкаў. || *прым.* **макіяжны**, -ая, -ае.

**МАКЛЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пасрэднік пры заключэнні гандлёвых і біржавых здзелак. || *прым.* **маклерскі**, -ая, -ае.

**МАКНУЦЬ** *гл.* мачаць.

**МАКОЎНІК**, -у, *м., зб.* Макавыя сцёблы. *Сноп макоўніку.*

**МАКРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. вялікі, буйны, напр.: *макраклімат, макраструктура, макрацэфалія.*

**МАКРАВАТЫ**, -ая, -ае. Крыху мокры, вільготны. *Макраватае сена.*

**МАКРАКОСМ**, -у, *м.* Сусвет, увесь свет, космас; свет вялікіх велічынь; *проціл.* мікракосм.

**МАКРАМЭ.** **1.** *нескл., н.* Мастацкі выраб з плеценых нітак. *Рабіць м.* **2.** *нескл., н.* Мастацтва такога пляцення. *Займацца м.* **3.** *прым., нязм.* Пра вырабы: сплецены з такіх нітак. *Пояс м.*

**МАКРАСКАПІЧНЫ**, -ая, -ае. Бачны простым вокам.

**МАКРАТА**, -ы, *ДМ* -рацэ, *ж.* Вільготнасць, сырасць.

**МАКРОТА**, -ы, *ДМ* -роце, *ж.* Слізістыя выдзяленні з лёгкіх або дыхальных шляхоў. *Кашаль з макротай.* || *прым.* **макротны**, -ая, -ае.

**МАКРОЦЦЕ**, -я, *н.* Тое, што і *макрата.*

**МАКРЫЦА**, -ы, *мн.* -ы, -рыц, *ж.* **1.** Невялікая ракападобная жывёліна з вялікай колькасцю ножак, якая жыве ў сырых месцах. **2.** толькі *адз.* Аднагадовае пустазелле з паўзучым сцяблом і дробнымі белымі кветачкамі, якое расце ў сырых месцах. || *прым.* **макрыцавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**МАКРЫЧНІК**, -у, *м.* Тое, што і *макрыца* (у 2 знач.).

**МАКРЭЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Тое, што і *скумбрыя.* || *прым.* **макрэлевы**, -ая, -ае. *Сямейства макрэлевых* (наз.).

**МАКРЭЦ**, -раца, *м.* Мокры лішай на нагах у коней і буйной рагатай жывёлы.

**МАКРЭЦЬ**, -эю, -эеш, -эе; *незак.* Станавіцца мокрым, вільготным. || *зак.* **змакрэць**, -эю, -эеш, -эе.

**МАКРЭЧА**, -ы, *ж.* (разм.). Сырасць, дажджлівае надвор'е.

**МАКСІ.** **1.** *нескл., н.* Спадніца, сукенка, паліто і пад. максімальнай даўжыні. *Цяпер мода на м. Насіць м.* **2.** *прым., нязм.* Максімальна доўгі (пра спадніцу, сукенку, паліто). *Спадніца-м.*

**МАКСІМАЛІЗМ**, -у, *м.* Празмерная, без уліку рэальных умоў крайнасць у якіх-н. патрабаваннях, поглядах. || *прым.* **максімалісцкі**, -ая, -ае.

**МАКСІМАЛІСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік максімалізму. || *ж.* **максімалістка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МАКСІМАЛЬНЫ**, -ая, -ае. Самы большы сярод іншых, найбольшы; *проціл.* мінімальны. *Максімальная хуткасць.* || *наз.* **максімальнасць**, -і, *ж.*

**МАКСІМУМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Найбольшая велічыня, колькасць чаго-н.; *проціл.* мінімум. *М. намаганняў.* **2.** *у знач. прысл.* Самае большае, не больш як. *Каштуе м. пяцьдзясят рублёў.* **3.** *у знач. прым., нязм.* Тое, што і *максімальны* (ужыв. пасля азначаемага слова). *Праграма-м.*

**МАКУЛАТУРА**, -ы, *ж.* **1.** Непрыгодная папера, кнігі і інш., прызначаныя для перапрацоўкі. **2.** *перан.* Бяздарныя, не маючыя вартасці літаратурныя творы. || *прым.* **макулатурны**, -ая, -ае.

**МАКУХА**, -і, *ДМ* -кусе, *ж.* Рэшткі семя (ільнянога, сланечнікавага і пад.) пасля выціскання з яго алею. || *прым.* **макухавы**, -ая, -ае.

**МАКУШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Вяршыня чаго-н.; верхавіна. **2.** Верхняя частка галавы, макаўка. *Шапка сядзела на самай макушцы.* || *прым.* **макушачны**, -ая, -ае.

**МАЛА**, *прысл.* **1.** Нямнога, у невялікай колькасці. *М. зрабіў. М. людзей. М. часу.* **2.** Недастаткова, менш, чым патрэбна. *У пакоі м.* (безас., у знач. вык.) *святла.* ◊ **Мала таго** (разм.), *у знач. пабочн. сл.* — акрамя таго. **Мала што** (разм.) — не мае значэння, што з таго.

**МАЛА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. малы, мала, напр.: *малаалкагольны, малакаларыйны, малапясчаны, малатлусты, малавоблачны, малалессе, малаплодны, малафарматны, малапаверховы, малавыражаны, маладаследаваны, маладзейсны, маланаселены, малаабгрунтаваны, малаадукаваны, маладойны, малазабяспечаны, малапрыстойны, маласпрактыкаваны, малапатрыманы, малаўжываны.*

**МАЛАВАЖНЫ**, -ая, -ае. Няважны, нязначны. *Малаважная акалічнасць.* || *наз.* **малаважнасць**, -і, *ж.*

**МАЛАВАТЫ**, -ая, -ае (разм.). Недастатковы па памеры, велічыні, колькасці. *М. клас. Чаравікі малаватыя.*

**МАЛАВЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто мала верыць у што-н. ‖ *ж.* **малаве́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак.

**МАЛАВЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які недастаткова верыць у каго-, што-н. ‖ *наз.* **малаве́р'е**, -я, *н.*

**МАЛАВО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Нізкі ўзровень вады ў рэках, азёрах і пад. *Летняе м.* **2.** Недахоп вады, ападкаў, арашэння.

**МАЛА́ГА**, -і, *ДМ* -ла́зе, *ж.* Гатунак дэсертнага вінаграднага віна.

**МАЛАГАБАРЫ́ТНЫ**, -ая, -ае. Невялікіх памераў. *Малагабарытная мэбля.* ‖ *наз.* **малагабары́тнасць**, -і, *ж.*

**МАЛАДАСВЕ́ДЧАНЫ**, -ая, -ае. Недастаткова эрудзіраваны, падрыхтаваны ў якой-н. галіне. *У матэматыцы ён м.* ‖ *наз.* **маладасве́дчанасць**, -і, *ж.*

**МАЛАДЗЕ́НЬКІ** *гл.* малады.

**МАЛАДЗЕ́Ц**, малайца́, *мн.* малайцы́, -о́ў, *м.* **1.** Статны, атлетычнага складу малады чалавек. *Бравы м.* **2.** *у знач. вык.* Ужыв. для выказвання пахвалы, адабрэння. *М., што ў час прыйшоў.* **3.** звычайна *мн.* Тое, што і *малойчык* (у 2 знач.; пагард.). *Эсэсаўскія малайцы рабавалі вёскі.*

**МАЛАДЗЕ́ЦКІ**, -ая, -ае (разм.). Уласцівы малайцу (у 1 знач.); удалы, хвацкі. *М. выгляд.*

**МАЛАДЗЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Станавіцца маладзейшым. *М. ад шчасця. Насельніцтва маладзее* (павялічваецца працэнт маладых). ‖ *зак.* **памаладзе́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**МАЛАДЗЁЖНЫ** *гл.* моладзь.

**МАЛАДЗІ́К**, -а́, *м.* Месяц (у 1 знач.) у першай квадры. ‖ *памянш.-ласк.* **маладзічо́к**, -чка́, *м.* ‖ *прым.* **маладзіко́вы**, -ая, -ае. *Маладзіковая нядзеля.*

**МАЛАДЗІКО́М**, *прысл.* (разм.). Калі настане маладзік, у перыяд маладзіка.

**МАЛАДЗІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -дзі́ц, *ж.* Маладая замужняя жанчына. *Спявалі маладзіцы і дзяўчаты.*

**МАЛАДЗІ́ЦЦА**, -ладжу́ся, -ло́дзішся, -ло́дзіцца; *незак.* Прымаць захады, каб выглядаць больш маладым. *Жанчына ўсё яшчэ маладзілася.*

**МАЛАДЗІ́ЦЬ**, -ладжу́, -ло́дзіш, -ло́дзіць; *незак., каго-што.* Надаваць больш малады выгляд. *Прычоска маладзіла жанчыну.*

**МАЛАДЖА́ВЫ**, -ая, -ае. Які выглядае маладзей за свае гады. *М. твар.* ‖ *наз.* **маладжа́васць**, -і, *ж.*

**МАЛАДНЯ́К**, -у́, *м.* **1.** Маладыя жывёлы, птушкі. *Калгасны м.* **2.** Малады лес. *Грыбы ў маладняку яшчэ не раслі.* **3.** Маладыя людзі, моладзь (разм.). *Дарослыя глядзелі, як весяліўся м.*

**МАЛАДО́СЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Юнацкі ўзрост, маладыя гады жыцця. **2.** Нядаўняе, непрацяглае існаванне чаго-н. *М. краіны.* ◊ **Другая маладосць** — прыліў новых сіл у пажылыя гады. **Не першай маладосці** — немалады, пажылы.

**МАЛАДУ́ХА**, -і, *ДМ* -ду́се, *мн.* -і, -ду́х, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што і *маладзіца.* **2.** Маладая, нявеста, а таксама дзяўчына, якая дасягнула шлюбнага ўзросту.

**МАЛАДУ́ШНАСЦЬ**, -і, *ж.* Адсутнасць цвёрдага духу, мужнасці.

**МАЛАДУ́ШНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Праяўляць маладушнасць, нерашучасць. ‖ *зак.* **змаладу́шнічаць**, -аю, -аеш, -ае.

**МАЛАДУ́ШНЫ**, -ая, -ае. Слабавольны, нерашучы, труслівы, не стойкі духам. *М. чалавек.*

**МАЛАДЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Юны, які не дасягнуў сталага ўзросту. *Маладое пакаленне.* **2.** Уласцівы маладому ўзросту, маладым людзям. *М. задор. Маладая душа.* **3.** Які нядаўна пачаў расці, існаваць, нядаўна ўтварыўся. *Маладое дрэўца.* **4.** Які нядаўна вырас, свежы. *Маладая бульба.* **5.** Нядаўна прыгатаваны (аб напітках, прадуктах). *Маладое піва.* **6.** *у знач. наз.* **малады́**, -о́га, *м.*, **малада́я**, -о́й, *ж.*, *мн.* **маладыя**, -ы́х. Жаніх і нявеста пасля заручын і ў час вяселля. *Віншаваць маладых.* ‖ *памянш.-ласк.* **маладзе́нькі**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**МАЛАЕ́ЗДЖАНЫ**, -ая, -ае. **1.** На якім мала ездзілі. *М. конь.* **2.** Па якім рэдка, мала ездзяць. *Малаезджаная дарога.*

**МАЛАЗЯМЕ́ЛЛЕ**, -я, *н.* Недастатковая колькасць зямлі для вядзення сельскай гаспадаркі.

**МАЛАЗЯМЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які не мае дастатковай колькасці зямлі для апрацоўкі. *М. селянін.* ‖ *наз.* **малазяме́льнасць**, -і, *ж.*

**МАЛАІСТО́ТНЫ**, -ая, -ае. Недастаткова істотны; малаважны. *М. факт.* ‖ *наз.* **малаісто́тнасць**, -і, *ж.*

**МАЛАЙЦАВА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Удалы, спрытны. *М. хлопец.* **2.** Бравы, заліхвацкі. *М. выгляд.* ‖ *наз.* **малайцава́тасць**, -і, *ж.*

**МАЛА́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -ла́ец, -ла́йца, *м.* Група народнасцей і плямён, якія жывуць на астравах Малайскага архіпелага. ‖ *ж.* **мала́йка**, -і, *ДМ* -ла́йцы, *мн.* -і, -ла́ек. ‖ *прым.* **мала́йскі**, -ая, -ае.

**МАЛАЙЧЫ́НА**, -ы, *Д* -у, *Т* -ам, *М* -е, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж.*, *мн.* -ы, -чы́н (разм.). Тое, што і *маладзец* (у 1 і 2 знач.).

**МАЛАКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. малако, напр.: *малакагонны, малаказавод, малакаправод, малакаадсос, малакаўтварэнне.*

**МАЛАКАВО́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Аўтамашына з цыстэрнай для перавозкі малака. **2.** Той, хто займаецца перавозкай малака. ‖ *прым.* **малакаво́зны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**МАЛАКАГО́ННЫ**, -ая, -ае (спец.). Які садзейнічае багатаму выдзяленню малака. *Бручка — м. корм.*

**МАЛАКАЛІ́БЕРНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *дробнакаліберны.*

**МАЛАКАМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння аб'ёму малака. ‖ *прым.* **малакаме́рны**, -ая, -ае.

**МАЛАКАСО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., пагард.). Пра маладога чалавека, які не ведае жыцця, не можа яшчэ стала развагаць.

**МАЛАКО́**, -а́, *М* -лацэ́ *і* -лаку́, *н.* **1.** Белая вадкасць, якая выдзяляецца груднымі залозамі жанчын і самак млекакормячых для выкармлівання дзяцей. *Мацярынскае малако.* **2.** Такая вадкасць, якую атрымліваюць ад кароў, коз і іншых жывёл, як прадукт харчавання. *Казінае м. Каша з малаком. Кіслае м.* **3.** Белаваты сок некаторых раслін. *Міндальнае м.* ‖ *ласк.* **малачко́**, -а́, *н.* ‖ *прым.* **мало́чны**, -ая, -ае. *Малочная прамысловасць. М. статак. М. суп.*

**МАЛАКРО́ЎЕ**, -я, *н.* Хваравіты стан, які характарызуецца памяншэннем колькасці чырвоных крывяных цельцаў, гемаглабіну ў крыві. *Хварэць на м.*

**МАЛАКРО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які хварэе на малакроўе. *Малакроўнае дзіця.* **2.** Бледны ад малакроўя. *М. твар.*

**МАЛАКУЛЬТУ́РНЫ**, -ая, -ае. З нізкім узроўнем культуры, адсталы ў культурных адносінах. *М. чалавек.*

**МАЛАЛЕ́ТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* *і* **МАЛАЛЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (разм.). Дзіця, маленькі хлопчык або дзяўчынка.

**МАЛАЛЕ́ТНІ**, -яя, -яе. Якому нямнога год, дзіцячага ўзросту. *М. сын.*

**МАЛАЛЕ́ЦТВА**, -а, *н.* (разм.). Тое, што і *маленства.*

**МАЛАЛІ́КІ**, -ая, -ае. Невялікі па колькасці. ‖ *наз.* **малалі́касць**, -і, *ж.*

**МАЛАЛІТРА́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* (разм.). Малалітражны аўтамабіль.

**МАЛАЛІТРА́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае невялікі літраж, змяшчае мала вадкасці. *М. бак.* **2.** З цыліндрамі невялікага літражу, які расходуе мала гаручага. *М. аўтамабіль.*

**МАЛАЛЮ́ДНЫ**, -ая, -ае. З невялікай колькасцю людзей, не вельмі людны. *Малалюдная вёска.* ‖ *наз.* **малалю́днасць**, -і, *ж.*

**МАЛАМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Невялікага памеру, няпоўнай меры. *М. абутак.*

**МАЛАНАДЗЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Такі, на якога нельга спадзявацца, які не выклікае давер'я. *М. чалавек.*

**МАЛА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Імгненны разрад атмасфернай электрычнасці ў выглядзе яркай ломанай лініі. *Бліснула м.* **2.** Тэрміновы выпуск бюлетэня, газеты, кнігі і інш., а таксама вельмі тэрміновая тэлеграма. **3.** Від засцежкі, якая хутка зашморгваецца. ‖ *прым.* **мала́нкавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**МАЛАНКААДВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вертыкальны металічны стрыжань, злучаны провадам з зямлёй, які служыць для аховы будынкаў ад прамых udараў маланкі; громаадвод. ‖ *прым.* **маланкаадво́дны**, -ая, -ае.

**МАЛАНО́ШАНЫ**, -ая, -ае. Пра вопратку, абутак, якія насілі нядоўгі час.

**МА́ЛА-ПАМА́ЛУ**, *прысл.* Паступова, патроху. *М. разгаварыліся.*

**МАЛАПІСЬМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не ўмее добра пісаць і чытаць. **2.** Выкананы недастаткова пісьменна, з памылкамі. *Пратакол напісаны малапісьменна* (прысл.). ‖ *наз.* **малапісьме́ннасць**, -і, *ж.*

**МАЛАПРАДУКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Недастаткова прадуктыўны, які рэдка выкарыстоўваецца. *М. суфікс.* ‖ *наз.* **малапрадукты́ўнасць**, -і, *ж.*

**МАЛАПРАДУКЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прыносіць мала вынікаў. *Малапрадукцыйная праца.* **2.** Які дае недастатковую колькасць прадукцыі. *Малапрадукцыйная жывёла.* ‖ *наз.* **малапрадукцы́йнасць**, -і, *ж.*

**МАЛАПРЫДА́ТНЫ**, -ая, -ае. Недастаткова прыдатны для выкарыстання. *Малапрыдатная зямля.* ‖ *наз.* **малапрыда́тнасць**, -і, *ж.*

**МАЛАРАЗВІТЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які не дасягнуў поўнага фізічнага развіцця. *Маларазвітыя мускулы рук.* **2.** Які не дасягнуў высокага ўзроўню развіцця. *Маларазвітая прамысловасць.* **3.** Які не мае шырокага кругагляду, недастаткова адукаваны. *М. чалавек.* ‖ *наз.* **маларазві́тасць**, -і, *ж.*

**МАЛАРО́СЛЫ**, -ая, -ае. Невялікага росту. *М. хлопец.* ‖ *наз.* **маларо́сласць**, -і, *ж.*

**МАЛАСІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае невялікую магутнасць, сілу; слабы. *М. рухавік.* ‖ *наз.* **маласі́льнасць**, -і, *ж.*

**МАЛАСО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Мала, слаба прасолены. *М. агурок.* ‖ *наз.* **малас́ольнасць**, -і, *ж.*

**МАЛАСЯМЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які мае невялікую сям'ю. *Інтэрнат для маласямейных* (наз.). ‖ *наз.* **маласяме́йнасць**, -і, *ж.*

**МАЛАТАБО́ЕЦ**, -бо́йца, *мн.* -бо́йцы, -бо́йцаў, *м.* Каваль, рабочы ў кузні, які працуе молатам.

**МАЛАТАВІ́ШЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Дзяржанне, ручка молата, малатка.

**МАЛАТА́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* Машына для абмалоту розных сельскагаспадарчых культур.

**МАЛАТО́К**, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* Інструмент, прызначаны для забівання чаго-н., кляпання і пад. ў выглядзе металічнага або драўлянага бруска, насаджанага на ручку пад прамым вуглом. ◊ **З малатка** (прадаць, пайсці) — быць прададзеным з аўкцыёну. ‖ *памянш.* **малато́чак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* ‖ *прым.* **малатко́вы**, -ая, -ае.

**МАЛАТО́ЧАК**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* **1.** *гл.* малаток. **2.** Назва розных ударных прыстасаванняў у некаторых механізмах і інструментах. *М. у раялі.* **3.** Адна са слыхавых костачак сярэдняга вуха.

**МАЛАХА́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Шапка з шырокімі навушнікамі, падбітая футрам. **2.** Шырокі сялянскі кафтан без пояса.

**МАЛАХІ́Т**, -у, *М* -хіце, *м.* Непразрысты мінерал ярка-зялёнага колеру. ‖ *прым.* **малахі́тавы**, -ая, -ае. *Малахітавая шкатулка.*

**МАЛАХО́ДЖАНЫ**, -ая, -ае. Такі, па якім рэдка ходзяць. *Малаходжаныя сцежкі.*

**МАЛАЦІ́ЦЬ**, -лачу́, -ло́ціш, -ло́ціць; -ло́чаны; *незак.* **1.** *што* і *без дап.* Выбіваць зерне з каласоў. *М. пшаніцу.* **2.** Стукаць, біць у што-н. (разм.). *Нехта ў дзверы малоціць.* **3.** *што.* Разбіваць, ламаць (разм.). *М. посуд.* **4.** *перан.* Хутка гаварыць, лапатаць (разм.). *Як пачне м., нічога не зразумееш.* ‖ *наз.* **малацьба́**, -ы́, *ж.* (да 1 знач.).

**МАЛАЦЬБІ́Т**, -а́, *М* -біце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Той, хто малоціць (у 1 знач.). *Малацьбітам пара есці.* ‖ *ж.* **малацьбі́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МАЛАЧА́Й**, -ю, *м.* Травяністая расліна сямейства малачаевых з ядавітым белым сокам. ‖ *прым.* **малача́евы**, -ая, -ае. *М. сок. Сямейства малачаевых* (наз.).

**МАЛАЧА́ЙНІК**, -у, *м.* Тое, што і *малачай.* ‖ *прым.* **малача́йнікавы**, -ая, -ае.

**МАЛАЧКО́** *гл.* малако.

**МАЛЕ́БЕН**, -бну, *мн.* -бны, -бнаў, *м.* Кароткае набажэнства за чыё-н. здароўе, поспехі і пад. *Служыць м.*

**МАЛЕ́КУЛА**, -ы, *мн.* -ы, -кул, *ж.* Найменшая часцінка рэчыва, якая захоўвае ўсе яго асноўныя хімічныя ўласцівасці. *М. складаецца з атамаў.* ‖ *прым.* **малекуля́рны**, -ая, -ае. *Малекулярная вага.*

**МАЛЕ́ЛЬНЫ** *гл.* маліцца.

**МАЛЕ́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* Памяшканне для рэлігійных сходаў, службы і малітваў (звычайна ў сектантаў і нехрысціян).

**МАЛЕ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто моліцца. ‖ *ж.* **мале́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**МАЛЕ́НЕЧКІ**, -ая, -ае. Вельмі маленькі. *М. хлопчык стаяў у куточку.*

**МАЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* маліцца, маліць. **2.** *мн.* -і, -яў. Шчырая просьба.

**МАЛЕ́НСТВА**, -а, *н.* Дзіцячы ўзрост, дзяцінства. *Шчаслівае м.*

**МАЛЕ́НЬКІ**, -ая, -ае. **1.** Нязначны па велічыні, памерах, колькасці. *Маленькая хатка. М. мароз. М. атрад.* **2.** Нязначны, які не мае істотнага значэння. *Маленькія непрыемнасці.* **3.** Тое, што і *малалетні. Любіць сваіх маленькіх* (наз.).

**МАЛЕСКІ́Н**, -у, *м.* Шчыльная бавоўняная тканіна звычайна цёмнага колеру для рабочай, спартыўнай вопраткі. ‖ *прым.* **малескі́навы**, -ая, -ае. *М. халат.*

**МАЛЕ́ЧА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** *зб.* Дробныя істоты; драбяза. **2.** Маленькае дзіця, дзіцяня. *Не спіць м.*

**МАЛЁК**, -лька́, *мн.* -лькі́, -лько́ў, *м.* Маленькая рыбка, якая нядаўна выйшла з ікры. *Налавіць малькоў.*

**МАЛІБДЭ́Н**, -у, *м.* Хімічны элемент, светла-шэры цвёрды метал. ‖ *прым.* **малібдэ́навы**, -ая, -ае.

**МАЛІ́НЫ**, -лі́н, *адз.* -а, -ы, *ж.* **1.** Паўхмызняковая расліна сямейства ружакветных з салодкімі чырвонымі ягадамі, а таксама самі яе ягады. *Лясныя м. Садовыя м. Не быць каліне малінаю* (прыказка). **2.** толькі *адз.* Аб чым-н. вельмі прыемным (разм.). *Не жыццё, а маліна.* ‖ *прым.* **малі́навы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Малінавае варэнне.*

**МАЛІ́НАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* маліны. **2.** Цёмна-чырвоны, падобны да колеру спелых малін.

**МАЛІ́НАЎКА**[1], -і, *ДМ* -наўцы, *мн.* -і, -навак, *ж.* Невялікая пералётная пеўчая птушка сямейства драздовых шэра-зеленаватага колеру з рыжымі грудзьмі.

**МАЛІ́НАЎКА**[2], -і, *ДМ* -наўцы, *мн.* -і, -навак, *ж.* Гатунак летняй яблыні, а таксама яе буйныя ружаватыя кісла-салодкія плады.

**МАЛІ́НАЎКА**[3], -і, *ДМ* -наўцы, *ж.* Настойка, прыгатаваная з ягад маліны.

**МАЛІ́ННІК**, -у, *м., зб.* Зараснік з кустоў маліны.

**МАЛІ́ТВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** У веруючых: тэкст, які чытаецца, калі звяртаюцца да Бога ці святых. *Чытаць малітву.* **2.** Маленне, звяртанне з малітвай да Бога, святых. *М. скончылася.* ‖ *прым.* **малі́твены**, -ая, -ае *і* **малітó́ўны**, -ая, -ае. *М. спеў.*

**МАЛІ́ТВЕННІК** *і* **МАЛІТО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Зборнік малітваў.

**МАЛІ́ЦЦА**, малю́ся, мо́лішся, мо́ліцца; *незак.* **1.** Звяртацца з малітвай да Бога, святых. *М. перад абразамі.* **2.** *перан., на каго-што.* Вельмі моцна любіць, абагаўляць каго-, што-н. *М. на сына.* ‖ *зак.* **памалі́цца**, -малю́ся, -мо́лішся, -мо́ліцца (да 1 знач.). ‖ *наз.* **мале́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **мале́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *М. дом.*

**МАЛІ́ЦЬ**, малю́, мо́ліш, мо́ліць; *незак., каго (што).* Надта прасіць, выказваць просьбы. *М. аб памілаванні.* ‖ *наз.* **мале́нне**, -я, *н.*

**МАЛО́ДЗІВА**, -а, *н.* Вадкасць, якая выдзяляецца груднымі залозамі ў жанчын і самак млекакормячых перад родамі і некалькі дзён пасля родаў. ‖ *прым.* **мало́дзіўны**, -ая, -ае.

**МАЛО́ДШЫ**, -ая, -ае. **1.** Меншы па гадах у параўнанні з кім-н., самы малодшы па ўзросце. *М. брат. М. ў сям'і.* **2.** Ніжэйшы чынам, ніжэйшы па службовым становішчы. *М. навуковы супрацоўнік. М. лейтэнант.* **3.** Пачатковы, ніжэйшы (пра клас, курс і пад.). *Настаўнік малодшых класаў.*

**МАЛО́ЙЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Малады чалавек, маладзец (у 1 знач.; уст.). **2.** Чалавек амаральных паводзін, які заслугоўвае асуджэння (пагард.). *Фашысцкія малойчыкі.*

**МАЛО́КІ**, -аў, *адз.* мало́ка, -і, *ДМ* -ло́цы, *ж.* Семявыя залозы і семявая вадкасць рыб.

**МАЛО́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., ме́лецца; *незак.* Раздрабняцца на муку, размолвацца. *Сухое жыта добра мелецца.*

**МАЛО́ЦЬ**, мялю́, ме́леш, ме́ле; мялі́; мо́латы; *незак., што.* **1.** Раздрабняць зерне, ператвараючы ў муку. *М. жыта.* **2.** *перан.* Балабоніць, гаварыць абы-што (разм.). *М. лухту.* ◊ **Малоць языком** (разм., неадабр.) — балбатаць няспынна,

гаварыць абы-што. ‖ *зак.* **змалóць**, змялю́, змéлеш, змéле; змялі́; змóлаты (да 1 знач.).

**МАЛÓЧАНЫ**, -ая, -ае. Абмалочаны. *Малочанае збожжа.*

**МАЛÓЧНА-ВАСКÓВЫ**, -ая, -ае. Пра ступень спеласці збажыны: якая вызначаецца светла-жоўтым колерам. *Малочна-васковая спеласць.*

**МАЛÓЧНАСЦЬ**, -і, *ж.* Здольнасць даваць тую ці іншую колькасць малака. *М. кароў.*

**МАЛÓЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Збаночак, у якім малако падаецца на стол. **2.** Мужчына, які прадае малако і малочныя прадукты (разм.).

**МАЛÓЧНІЦА**[1], -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Прадаўшчыца малака і малочных прадуктаў.

**МАЛÓЧНІЦА**[2], -ы, *ж.* Грыбковае захворванне слізістай абалонкі.

**МАЛÓЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* малако. **2.** Які дае многа малака. *Малочная карова.* **3.** Звязаны з перапрацоўкай малака. *М. завод.* **4.** Які выдзяляе малако. *Малочныя залозы.* **5.** Прызначаны для малака. *Малочныя бітоны.* **6.** Выкармлены малаком. *Малочныя парасяты.* **7.** *у знач. наз.* **малóчнае**, -нага, *н.* Ежа з малаком або з малака. *Ён харчуецца толькі малочным.* ○ **Малочны брат** або **малочная сястра** — аб няродных людзях, выкармленых малаком адной жанчыны. **Малочныя зубы** — зубы ў дзяцей, якія выпадаюць пасля шасцігадовага ўзросту. ◊ **Малочныя рэкі з кісельнымі берагамі** (разм.) — матэрыяльна забяспечанае жыццё.

**МÁЛПА**, -ы, *мн.* -ы, малп *і* -аў, *ж.* **1.** Млекакормячая жывёліна атрада прыматаў, якая па будове цела з'яўляецца самай блізкай да чалавека. *Шыраканосыя малпы.* **2.** *перан.* Пра чалавека, які крыўляецца (разм.). ‖ *памянш.* **мáлпачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **мáлпавы**, -ая, -ае *і* **мáлпін**, -а. *Малпавы запаведнік. Малпіна футра.*

**МАЛПАВÁЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; *незак.* (разм.). Крыўляцца, пераймаць чые-н. рухі, міміку і пад. ‖ *наз.* **малпавáнне**, -я, *н.*

**МАЛПАПАДÓБНЫ**, -ая, -ае. Які з выгляду нагадвае малпу. *М. твар.* ‖ *наз.* **малпападóбнасць**, -і, *ж.*

**МАЛПÓЎНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Памяшканне для малпаў.

**МАЛПЯНЯ́** *і* **МАЛПЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня малпы.

**МАЛЫ́**, -áя, -óе. **1.** Нязначны па велічыні, памерах; невялікі. *Малая зала.* **2.** Нязначны па колькасці, часе. *М. атрад. Прайшоў яшчэ м. час.* **3.** Меншы, чым патрэбна. *Малыя боты.* **4.** Які не мае істотнага значэння; малаважны. *Малая справа, м. і клопат.* **5.** Які займае нязначнае службовае становішча. **6.** Тое, што і *малалетні. Малыя дзеткі — малыя і бедкі* (прыказка). **7.** *у знач. наз.* **малы́**, -óга, *м.*, **малáя**, -óй, *ж.*, *мн.* **малы́я**, -ы́х. Дзіця. *Падвезці малых у школу.* ◊ **Ад малога да вялікага** — усе да аднаго, абсалютна ўсе. **Без малога** (разм.) — амаль (не), чуць (не). **З малых гадоў** — з дзяцінства. **Самае малое** — найменш.

**МАЛЫ́Ш**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* (разм.). Маленькі хлопчык. ‖ *ж.* **малы́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак. ‖ *прым.* **малышóвы**, -ая, -ае.

**МАЛЬБÉРТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Падстаўка для падрамніка з палатном, на якой мастакі пішуць карціны. ‖ *прым.* **мальбéртны**, -ая, -ае. *Школа мальбертнага жывапісу.*

**МÁЛЬВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Травяністая расліна сямейства мальвавых з вялікімі яркімі кветкамі. *Чырвоныя мальвы.* ‖ *прым.* **мáльвавы**, -ая, -ае. *Сямейства мальвавых* (наз.).

**МАЛЮ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* **1.** Карціна, ілюстрацыя (звычайна фарбамі). *Кніжка з малюнкамі.* **2.** *перан.* Тое, што можна ўявіць у канкрэтных вобразах. *Малюнкі роднага краю.* **3.** У літаратуры: апісанне жыццёвых з'яў. *Апавяданне дае яркі м. жыцця дарэвалюцыйнай вёскі.* ‖ *прым.* **малю́нкавы**, -ая, -ае.

**МАЛЮ́СЕНЬКІ**, -ая, -ае. Вельмі маленькі. *М. вожык.*

**МАЛЮ́СК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Беспазваночная жывёліна, мяккае цела якой пакрыта ракавінай. *Марскія малюскі.* ‖ *прым.* **малю́скавы**, -ая, -ае.

**МАЛЯВÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які служыць для размалёўвання (спец.). *М. трафарэт.* **2.** Прызначаны для малявання. *М. альбом.*

**МАЛЯВÁЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Мастак, які валодае майстэрствам малюнка (у 1 знач.).

**МАЛЯВÁНЫ**, -ая, -ае. **1.** Створаны фарбамі. **2.** Пафарбаваны. *Маляваныя дзверы.*

**МАЛЯВÁЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны; *незак., каго-што.* **1.** Адлюстроўваць фарбамі. *М. карціну.* **2.** Пакрываць фарбай. *М. паркан.* **3.** *перан.* Расказваць пра што-н., апісваць што-н. *М. сялянскі быт.* ‖ *зак.* **намалявáць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны. ‖ *наз.* **малявáнне**, -я, *н. Урок малявання.*

**МАЛЯ́Р**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Рабочы, які фарбуе будынкі, памяшканні, парканы і пад. ‖ *прым.* **маля́рскі**, -ая, -ае.

**МАЛЯ́РНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з работай маляра. *Малярныя работы.*

**МАЛЯ́РЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які хварэе на малярыю.

**МАЛЯРЫ́Я**, -і, *ж.* Інфекцыйнае захворванне, якое перадаецца некаторымі відамі камароў і суправаджаецца прыступамі ліхаманкі (у 1 знач.). ‖ *прым.* **малярыйны**, -ая, -ае. *М. камар.*

**МАЛЯ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ля́ўцы, *мн.* -і, -ля́вак, *ж.* **1.** Тое, што і *малёк.* **2.** *перан.* Пра чалавека маленькага росту або пра дзіця (разм., іран.).

**МАЛЯЎНІ́ЧЫ**, -ая, -ае. Вельмі прыгожы, захапляючы сваёй прыгажосцю. *Панямонне — м. куток Беларусі.* ‖ *наз.* **маляўні́часць**, -і, *ж.*

**МÁМА**, -ы, *мн.* -ы, мам, *ж.* Тое, што і *маці* (у 1 знач.). ‖ *ласк.* **мáмачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*, **мáмка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.*, **маму́ля**, -і, *мн.* -і, -му́ль, *ж.* (разм.) *і* **маму́ся**, -і, *мн.* -і, -му́сь, *ж.* (разм.). ‖ *прым.* **мáмін**, -а.

**МАМАЛЫ́ГА**, -і, *ДМ* -лы́зе, *ж.* Каша з кукурузнай мукі або з кукурузных круп.

**МÁМАНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вымерлая млекакормячая жывёліна сямейства слановых з доўгай поўсцю і вялікімі загнутымі біўнямі. ‖ *прым.* **мáмантавы**, -ая, -ае. *М. бівень.*

**МÁМАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** *гл.* мама. **2.** *у знач. выкл.* Ужыв. для перадачы здзіўлення, спалоху. *Ах, м.!*

**МАМЕНТÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. Вельмі хуткі, імгненны. *М. здымак. Зрабіць маментальна* (прысл.). ‖ *наз.* **launчмаментáльнасць**, -і, *ж.*

**МÁМКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* **1.** *гл.* мама. **2.** Жанчына, якая корміць грудзьмі чужое дзіця. ‖ *прым.* **мáмчын**, -а (разм.). *Мамчына хустка.* ◊ **Мамчын сынок** (іран.) — распешчаны хлапчук, малады чалавек.

**МАНÁ**, -ы́, *ж.* Хлусня, няпраўда.

**МАНА...** (*гл.* **мона...**). Першая састаўная частка складаных слоў, ужыв. замест «мона...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *манафтонг, манаграфія, манаплан.*

**МАНАГÁМІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Форма шлюбу, пры якой адзін мужчына можа ўтвараць сям'ю толькі з адной жанчынай; аднашлюбнасць. ‖ *прым.* **манагáмны**, -ая, -ае *і* **манагамі́чны**, -ая, -ае.

**МАНАГРÁМА**, -ы, *мн.* -ы, -рáм, *ж.* Вязь з дзвюх або некалькіх літар. ‖ *прым.* **манагрáмны**, -ая, -ае.

**МАНАГРÁФІЯ**, -і, *мн.* -і, -фій, *ж.* Навуковы твор, што даследуе адно якое-н. пытанне, асвятляе адну тэму. ‖ *прым.* **манаграфі́чны**, -ая, -ае.

**МАНАЛÍТ**, -у, *М* -ліце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Суцэльная каменная глыба, а таксама прадмет, высечаны з яе. **2.** Кавалак глебы з непарушаным структурным складам, які паказвае будову глебы ў вертыкальным разрэзе (спец.). ‖ *прым.* **маналі́тны**, -ая, -ае. *Маналітная калона.*

**МАНАЛÍТНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* маналіт. **2.** *перан.* Моцна згуртаваны, з'яднаны. *Маналітная армія.* ‖ *наз.* **маналі́тнасць**, -і, *ж.*

**МАНАЛÓГ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Гаворка адной асобы, звернутая да слухачоў або да самога сябе. *Сцэнічны м. М. Гамлета.* ‖ *прым.* **маналагі́чны**, -ая, -ае.

**МАНАПАЛІЗАВÁЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -завáны; *зак. і незак., што.* Устанавіць (устанаўліваць) манаполію на што-н. *М. знешні гандаль.* ‖ *наз.* **манапалізáцыя**, -і, *ж.*

**МАНАПАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, прадпрыемства, што карыстаюцца манаполіяй у якой-н. галіне. **2.** Прадстаўнік манапалістычнага капіталу. ‖ *прым.* **манапалі́сцкі**, -ая, -ае.

**МАНАПЛА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Самалёт, які мае адну пару крылаў, размешчаных у адной плоскасці.

**МАНАПО́ЛІЯ**, -і, *мн.* -і, -лій, *ж.* **1.** Выключнае права на вытворчасць або продаж чаго-н., а таксама выключнае права карыстання чым-н. *Дзяржаўная м.* **2.** Буйное капіталістычнае аб'яднанне, якое ўзнікла на падставе канцэнтрацыі вытворчасці і капіталу з мэтай панавання ў пэўнай галіне гаспадаркі і атрымання найбольшага прыбытку. ‖ *прым.* **манапалісты́чны**, -ая, -ае *і* **манапо́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Манапалістычны капітал. Манапольнае права.*

**МАНА́РХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая ўзначальвае манархію (цар, кароль, імператар і інш.). ‖ *прым.* **мана́ршы**, -ая, -ае. *Манаршая ўлада.*

**МАНАРХІ́ЗМ**, -у, *м.* Палітычны кірунак, які прызнае манархію адзінай формай дзяржаўнай улады. ‖ *прым.* **манархі́сцкі**, -ая, -ае.

**МАНАРХІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік манархізму. ‖ *ж.* **манархі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **манархі́сцкі**, -ая, -ае.

**МАНА́РХІЯ**, -і, *мн.* -і, -хій, *ж.* Форма дзяржаўнага кіравання, пры якой вярхоўная ўлада належыць адной асобе — манарху, а таксама дзяржава з такой формай кіравання. ○ **Абсалютная манархія** — дзяржава, у якой уся ўлада належыць толькі манарху. **Канстытуцыйная манархія** — форма дзяржаўнага ладу, пры якім улада манарха абмежавана канстытуцыяй. **Саслоўная манархія** — форма феадальнай дзяржавы, пры якой улада манарха спалучаецца з органамі саслоўнага прадстаўніцтва дваран, духавенства і гараджан. ‖ *прым.* **манархі́чны**, -ая, -ае.

**МАНАРЭ́ЙКА**, -і, *ДМ* -рэ́йцы, *мн.* -і, -рэ́ек, *ж.* (спец.). Падвесны аднарэйкавы чыгуначны пуць. ‖ *прым.* **манарэ́йкавы**, -ая, -ае. *Манарэйкавая дарога.*

**МАНА́СКІ** *гл.* манах.

**МАНАСТЫ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Рэлігійная абшчына манахаў або манашак, якая ўтварае царкоўна-гаспадарчую арганізацыю. *Мужчынскі м. Жаночы м.* **2.** Тэрыторыя, царква і жылыя памяшканні такой абшчыны. ◊ **Падвесці пад манастыр** *каго* (разм.) — паставіць каго-н. у вельмі непрыемнае, цяжкае становішча. ‖ *прым.* **манасты́рскі**, -ая, -ае.

**МАНА́ТКІ**, -аў (разм.). Дробныя рэчы, пажыткі. *Збіраць свае м.*

**МАНАТО́ННЫ**, -ая, -ае. Вельмі аднастайны па тоне, інтанацыі. *М. голас.* ‖ *наз.* **манато́ннасць**, -і, *ж.*

**МАНАТЫ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Наборная машына, якая адлівае набор асобнымі літарамі. ‖ *прым.* **манаты́пны**, -ая, -ае. *М. набор.*

**МАНА́Х**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Член царкоўнай абшчыны, які даў абяцанне весці аскетычны лад жыцця. *Жыць манахам* (таксама перан.). ‖ *ж.* **мана́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак. ‖ *прым.* **мана́скі**, -ая, -ае. *М. ўклад жыцця* (таксама перан.: суровы, аскетычны). *Манаская вопратка.*

**МА́НГА**, *нескл., н.* Трапічнае пладовае дрэва сямейства сумахавых, а таксама яго салодкі духмяны плод. ‖ *прым.* **ма́нгавы**, -ая, -ае.

**МАНГАЛО́ІДНЫ**, -ая, -ае. **1.** У выразе: **мангалоідная раса** (спец.) — раса людзей з жаўтаватай скурай, прамымі чорныміваласамі, вузкімі вачамі, малым носам і некаторымі іншымі прыметамі. **2.** Які мае адносіны да такой расы, які мае прыметы такой расы. *М. тып твару.*

**МАНГО́ЛЫ**, -аў, *адз.* -го́л, -а, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Манголіі. ‖ *ж.* **манго́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **манго́льскі**, -ая, -ае. *Мангольскія плямёны.*

**МАНГУ́СТ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м. і* **МАНГУ́СТА**, -ы, *ДМ* -сце, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Драпежная млекакормячая жывёліна сямейства мангуставых з пушыстым хвастом, некаторыя віды якой знішчаюць змей і грызуноў.

**МАНДАЛІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -лі́н, *ж.* Струнны шчыпковы музычны інструмент з авальным корпусам. ‖ *прым.* **мандалі́нны**, -ая, -ае.

**МАНДАЛІНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на мандаліне. ‖ *ж.* **мандаліні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МАНДАРЫ́Н**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйны чыноўнік у феадальным Кітаі. ‖ *прым.* **мандары́нскі**, -ая, -ае.

**МАНДАРЫ́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Цытрусавае пладовае дрэва сямейства рутавых, а таксама яго кісла-салодкі духмяны плод. ‖ *прым.* **мандары́навы**, -ая, -ае. *М. сіроп.*

**МАНДА́Т**, -а, *М* -да́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дакумент, які пацвярджае тыя або іншыя правы і паўнамоцтвы прад'яўніка. *Дэпутацкі м.* ‖ *прым.* **манда́тны**, -ая, -ае. *Мандатная камісія.*

**МАНДРЫ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая малпа сямейства павіянаў.

**МАНЕ́Ж**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Абгароджанае месца або спецыяльнае вялікае памяшканне для верхавой язды і конных практыкаванняў. **2.** Арэна цырка. **3.** Невялікая пераносная загародка для дзяцей, якія пачынаюць хадзіць. ‖ *памянш.* **мане́жык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 3 знач.). ‖ *прым.* **мане́жны**, -ая, -ае. *Манежная язда.*

**МАНЕ́ЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *незак.* (разм.). Манернічаць, крыўляцца.

**МАНЕ́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; *незак., каго.* **1.** Аб'язджаць каня па правілах манежнай язды (спец.). **2.** *перан.* Мучыць, таміць (разм.).

**МАНЕКЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Фігура ў выглядзе чалавечага тулава для прымеркі і паказу адзення. ‖ *прым.* **манеке́нны**, -ая, -ае.

**МАНЕКЕ́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які дэманструе на сабе адзенне новых фасонаў. ‖ *ж.* **манеке́ншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **манеке́ншчыцкі**, -ая, -ае.

**МАНЕ́Р**, -а, *м.* (разм.). Спосаб дзеяння, лад, узор. *Такім манерам. На новы м. Банцік на м. бабачкі.* ◊ **На адзін манер** — на адзін лад. **На свой манер** — па-свойму, не так, як іншыя.

**МАНЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -не́р, *ж.* **1.** Спосаб дзеяння, прыём, тая або іншая асаблівасць паводзін. *М. гаварыць.* **2.** толькі *мн.* Знешнія формы паводзін. *Дрэнныя манеры.*

**МАНЕ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Паходная металічная пляшка з накрыўкай. **2.** Круглая бляшанка (разм.). ‖ *прым.* **мане́рачны**, -ая, -ае.

**МАНЕ́РНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Ненатуральна паводзіць сябе; крыўляцца.

**МАНЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Ненатуральны, пазбаўлены прастаты. *М. стыль.* ‖ *наз.* **мане́рнасць**, -і, *ж.*

**МАНЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -не́це, *мн.* -ы, -не́т, *ж.*, таксама *зб.* Металічны грашовы знак. *Залатая м.* ◊ **Адплаціць (плаціць) той жа манетай** — адказаць тым жа, такімі ж адносінамі. **Прыняць за чыстую манету** — палічыць праўдай, успрыняць усур'ёз. ‖ *прым.* **мане́тны**, -ая, -ае. ○ **Манетны двор** — прадпрыемства, якое вырабляе металічныя грошы, медалі і пад.

**МАНЕ́ЎР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Перамяшчэнне баявых сіл з мэтай нанесці ўдар праціўніку. *Абходны м. М. партызан.* **2.** *перан.* Прыём з мэтай ашукаць, перахітрыць каго-н. *Нескладаны м.* **3.** толькі *мн.* Тактычныя заняткі вялікай колькасці войск або флоту ва ўмовах, блізкіх да баявых. *Асеннія манеўры.* **4.** толькі *мн.* Перамяшчэнне вагонаў і паравозаў на чыгуначных пуцях пры састаўленні цягнікоў. ‖ *прым.* **манеўро́вы**, -ая, -ае (да 4 знач.). *М. паравоз.*

**МАНЕЎРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак.* **1.** Рабіць манеўр, манеўры (у 1, 3 і 4 знач.). *Паравоз манеўруе.* **2.** Лавіраваць, абыходзіць перашкоду. *М. сярод перашкод.* **3.** *перан.* Дзейнічаць так, каб ашукаць каго-н.; хітрыць (разм.). *Няма чаго м.* **4.** *перан., чым.* Умела распараджацца чым-н., выкарыстоўваць што-н. *М. тэхнікай.* ‖ *зак.* **зманеўрава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **манеўрава́нне**, -я, *н.*

**МАНЕ́ЎРАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вядзецца з прымяненнем манеўра (у 1 знач.), без доўгачасовых умацаванняў. *Манеўраная вайна.* **2.** Здольны хутка мяняць напрамак руху. *М. крэйсер.* ‖ *наз.* **мане́ўранасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**МАНЖЭ́ТА**, -ы, *ДМ* -жэ́це, *мн.* -ы, -жэ́т, *ж.* Прышыты ці прышпілены абшлаг рукава кашулі, блузкі і інш. ‖ *прым.* **манжэ́тны**, -ая, -ае.

**МАНІ́ЗМ**, -у, *м.* Філасофскае вучэнне, якое лічыць асновай свету толькі адзін пачатак — матэрыю або дух. *Навуковы матэрыялістычны м. Ідэалістычны м.* ‖ *прым.* **маністы́чны**, -ая, -ае.

**МАНІКЮ́Р**, -у, *м.* **1.** Чыстка і паліроўка ногцяў на пальцах рук. *Зрабіць м.* **2.** Пра пакрытыя лакам, адпаліраваныя ногці. *Прыгожы м.* ‖ *прым.* **манікю́рны**, -ая, -ае. *Манікюрныя нажніцы.*

**МАНІКЮ́РША**, -ы, *мн.* -ы, -кюрш *і* -аў, *ж.* Спецыялістка па манікюры.

**МАНІПУЛЯВА́ЦЬ**, -люю, -люеш, -люе; -люем, -люеце, -люють; *незак.* Рабіць маніпуляцыі. *Умела м. рычажкамі.*

**МАНІПУЛЯ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Цыркавы артыст, які робіць розныя фокусы з дапамогай лоўкасці рук; фокуснік. **2.** Чалавек, які займаецца падробкай, рознымі махінацыямі (неадабр.). **3.** Назва некаторых прыстасаванняў для выканання складаных рухаў, дзеянняў, падобных на дзеянні рук (спец.). ‖ *прым.* **маніпуля́тарскі**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.) *і* **маніпуля́тарны**, -ая, -ае (да 3 знач.). *Маніпулятарскі прыём. Маніпулятарская махінацыя. Канструкцыя маніпулятарнага тыпу.*

**МАНІПУЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Складаны прыём, дзеянне над чым-н. пры рабоце рукамі, ручным спосабам. **2.** *перан.* Махлярства, махінацыі, падробка.

**МАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік манізму.

**МАНІ́СТЫ**, -аў. **1.** Упрыгажэнне з пацерак, манет, каштоўных камянёў, якое жанчыны носяць на шыі. **2.** Што-н. нанізанае на нітку. *М. тытуню.*

**МАНІТО́Р**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Апарат, прызначаны для вывядзення графічнай і тэкставай інфармацыі. *Многаканальныя маніторы. М. камп'ютара. Студыйны м.* ‖ *прым.* **маніто́рны**, -ая, -ае.

**МАНІТО́Р**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). Від браніраваных караблёў з буйнакалібернай артылерыяй для абстрэлу берагавых аб'ектаў. *Марскі м.* ‖ *прым.* **маніто́рны**, -ая, -ае.

**МАНІФЕ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Урачысты пісьмовы зварот вярхоўнай улады да народа. **2.** Пісьмовая адозва з выкладам якіх-н. палажэнняў праграмнага характару. *Літаратурны м. М. да народаў свету.*

**МАНІФЕСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак.* Прымаць удзел у маніфестацыі. *М. на вуліцах горада.*

**МАНІФЕСТА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік маніфестацыі. ‖ *ж.* **маніфеста́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МАНІФЕСТА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Масавае вулічнае шэсце для выражэння салідарнасці з чым-н. або пратэсту супраць чаго-н.

**МАНІ́ЦЫ**, -ніц *і* -аў. Мужчынскія калівы канапель, а таксама валакно, якое атрымліваецца з іх. ‖ *прым.* **мані́чны**, -ая, -ае.

**МАНІ́ЦЬ**, маню́, ма́ніш, ма́ніць; *незак.* Абманваць, хлусіць, гаварыць няпраўду. ‖ *зак.* **змані́ць**, зманю́, зма́ніш, зма́ніць, **наманíць**, -маню́, -ма́ніш, -ма́ніць *і* **паманíць**, -маню́, -ма́ніш, -ма́ніць.

**МАНІ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Белы нагруднік, прышыты або прышпілены да мужчынскай кашулі, а таксама ўстаўка на грудзях у жаночай сукенцы. ‖ *прым.* **мані́шкавы**, -ая, -ае.

**МА́НІЯ**, -і, *ж.* **1.** Псіхічнае расстройства, якое характарызуецца павышанай псіхічнай актыўнасцю, узбуджанасцю (спец.). **2.** Выключная засяроджанасць свядомасці, пачуццяў на якой-н. адной ідэі. *М. вялікасці. М. праследавання.* **3.** *перан.* Хваравітая неадольная цяга да чаго-н. *М. пісаць вершы.* ‖ *прым.* **маніяка́льны**, -ая, -ае. *М. стан.*

**МАНКІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак.* (уст.). Нядбайна аднесціся да каго-, чаго-н., пагрэбаваць (грэбаваць) чым-н. *М. службовымі абавязкамі.*

**МА́ННА**, -ы, *ж.* **1.** Ежа, якая, паводле біблейскага падання, падала з неба іўдзеям у час іх вандравання па пустыні. **2.** Крупы, зробленыя з дробна размолатай пшаніцы. ◊ **Манна нябесная** — 1) што-н. вельмі патрэбнае, доўгачаканае; 2) багацце падазронага паходжання.

**МА́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Зроблены з дробна размолатай пшаніцы. *Манныя крупы.* **2.** Прыгатаваны з манных круп. *Манная каша.*

**МАНО́КЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Аптычны прыбор для аднаго вока, які ўстаўляецца ў вачніцу замест акуляраў. *М. на шнурку.*

**МАНО́МЕТР**, -а, *мн.* -ы -аў, *м.* Прылада для вымярэння ціску вадкасці або газу. ‖ *прым.* **манаметры́чны**, -ая, -ае *і* **мано́метравы**, -ая, -ае. *Манаметрычныя вымярэнні. Манометравы завод.*

**МАНПАНСЬЕ́**, *нескл., н.* Гатунак ледзянцоў.

**МАНСА́РДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -са́рд *і* -аў, *ж.* Жылое памяшканне пад самай страхой дома з нахіленай столлю або сцяной. *Дом з мансардай.* ‖ *прым.* **манса́рдавы**, -ая, -ае.

**МА́НСІ**, *нескл., м.* і *ж. і* **МАНСІ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* мансі́ец, -сійца, *м.* Народ угра-фінскай моўнай групы, які насяляе Ханты-Мансійскую аўтаномную акругу, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **мансі́йка**, -і, *ДМ* -сійцы, *мн.* -і, -сíек. ‖ *прым.* **ма́нсі**, *нязм. і* **мансі́йскі**, -ая, -ае.

**МАНТА́Ж**, -у́, *м.* **1.** *гл.* манціраваць. **2.** Злучаныя ў адно цэлае розныя часткі чаго-н. *Літаратурны м. Фатаграфічны м.* ‖ *прым.* **манта́жны**, -ая, -ае.

**МАНТА́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па мантажы канструкцый. ‖ *ж.* **манта́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**МАНТАЖО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па мантажы (у кінематаграфіі, фатаграфіі). *М. фільма.*

**МАНТАЖЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст, які манціруе друкарскі набор, стэрэатыпы, клішэ. ‖ *ж.* **мантажы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МАНТА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Марнатравец, той, хто транжырыць свае грошы, маёмасць. ‖ *ж.* **манта́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**МАНТО́**, *нескл., н.* Жаночае паліто (пераважна футравае) свабоднага пакрою. *Коцікавае м.*

**МАНТУ́**. **1.** *нескл., ж.* Унутрыскурная проба для ранняй дыягностыкі туберкулёзу. **2.** *прым., нязм.* Які мае адносіны да такой пробы. *Рэакцыя м.*

**МАНТЫ́ЛЬЯ**, -льі, *мн.* -льі, -льяў, *ж.* **1.** У іспанак: карункавая накідка на галаву і плечы. **2.** Кароткая жаночая накідка без рукавоў.

**МА́НТЫЯ** -і, *мн.* -і, -тый, *ж.* **1.** Доўгая шырокая адзежына ў выглядзе плашча. *Чорная м.* **2.** Складка скуры ў некаторых беспазваночных жывёл, якая звычайна ўтрымлівае жабры (спец.). **3.** Унутраная сфера Зямлі, якая знаходзіцца паміж зямной карой і ядром (спец.).

**МАНУА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які робіцца, ажыццяўляецца рукамі, уздзеяннем рук. *Мануальная тэрапія.*

**МАНУМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Архітэктурнае або скульптурнае збудаванне ў гонар якой-н. выдатнай падзеі або знакамітай асобы. *М. Якубу Коласу.*

**МАНУМЕНТАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скульптар, які займаецца манументальным мастацтвам. ‖ *ж.* **манументалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МАНУМЕНТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адносіцца да стварэння манументаў, помнікаў, да афармлення архітэктурных збудаванняў. **2.** Велічны, грандыёзны, які ўражвае сваёй велічынёй, магутнасцю. *М. будынак.* **3.** Грунтоўны, глыбокі па змесце. *М. твор. Манументальнае даследаванне.* ‖ *наз.* **манумента́льнасць**, -і, *ж.*

**МАНУСКРЫ́ПТ**, -а, *М* -пце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Старажытны рукапіс. *Старадаўнія манускрыпты.*

**МАНУФАКТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ту́р, *ж.* **1.** Форма капіталістычнай вытворчасці, для якой характэрна выкарыстанне ручных прылад і падзел працы. **2.** Фабрыка, пераважна тэкстыльная (уст.). **3.** *зб.* Тканіна, тэкстыльныя вырабы (уст.). ‖ *прым.* **мануфакту́рны**, -ая, -ае.

**МАНЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Зборшчык і ўстаноўшчык машын, абсталявання. *М.-турбіншчык.* **2.** Спецыяліст па электраабсталяванні, электраправодцы; электраманцёр. ‖ *прым.* **манцёрскі**, -ая, -ае.

**МАНЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., што.* Збіраць асобныя часткі ў адзінае цэлае. *М. станок. М. фільм.* ‖ *зак.* **зманці́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны. ‖ *наз.* **манці́раванне**, -я, *н.*, **манта́ж**, -у́, *м. і* **манціро́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж. Мантаж кінафільма.* ‖ *прым.*

**мантáжны**, -ая, -ае *і* **манцірóвачны**, -ая, -ае. *Мантажныя работы.*

**МАНЦІРÓЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па манціроўцы; мантажнік. ‖ *ж.* **манцірóўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**МАНЬЧЖЎРЫ**, -аў, *адз.* -жўр, -а, *м.* Народ, які жыве ў Маньчжурыі. ‖ *ж.* **маньчжўрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **маньчжўрскі**, -ая, -ае.

**МАНЬЯ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, апантаны маніяй. ‖ *ж.* **маньячка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **маньяцкі**, -ая, -ае.

**МАНЬЯ́ЦТВА**, -а, *н.* Хваравітае захапленне якой-н. ідэяй, уласцівае маньяку.

**МАНЮ́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.*; *ДМ* -нюцы, *Т* -ай (-аю), *ж.*, *мн.* -і, -нюк (разм.). Той, хто маніць, не кажа праўду; хлус, ілгун.

**МАПЁД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лёгкі матацыкл з педальным прыводам. ‖ *прым.* **мапéдны**, -ая, -ае.

**МА́РА**, -ы, *мн.* -ы, мар, *ж.* **1.** Тое, што створана ўяўленнем, фантазіяй. *Прыгожыя мары.* **2.** Прадмет жаданняў, імкненняў. *М. ўсяго жыцця.* **3.** Аб чым-н. незвычайна прыгожым; вышэйшая ацэнка чаго-н. (разм.). *Не туфлі, а м.*

**МАРАБЎ**, *нескл.*, *м.* Вялікая трапічная птушка сямейства буслоў з тоўстай дзюбай і галавой без пер'я.

**МАРАВЫ́**, -áя, -óе. Які мае адносіны да мору, выклікае вялікую смяротнасць. *Маравая пошасць.*

**МАРАДЗЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, хто грабіць забітых і раненых на полі бою і займаецца грабяжом насельніцтва ў месцах катастроф. *Барацьба з марадзёрамі.* **2.** *перан.* Гандляр-спекулянт, які прадае што-н. па непамерна высокіх цэнах (разм.). ‖ *ж.* **марадзёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **марадзёрскі**, -ая, -ае.

**МАРАДЗЁРСТВА**, -а, *н.* Паводзіны, заняткі марадзёра.

**МАРАДЗЁРСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* Займацца марадзёрствам.

**МАРАЗІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). Камера халадзільніка для хуткага замарожвання мясных, рыбных і іншых харчовых прадуктаў.

**МАРАЗІ́ЛЬНЫ** *гл.* марозіць.

**МАРА́ЗМ**, -у, *м.* Стан поўнага ўпадку псіхафізічнай дзейнасці ў сувязі са старасцю або працяглай хваробай. *Старэчы м.* ‖ *прым.* **маразматы́чны**, -ая, -ае.

**МАРАЗМА́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які знаходзіцца ў стане маразму. ‖ *ж.* **маразматы́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**МАРА́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* **1.** Той, хто служыць у флоце. **2.** Чалавек, які добра ведае мора і марскую справу. ‖ *памянш.-ласк.* **марачóк**, -чкá, *мн.* -чкí, -чкóў, *м.* ‖ *прым.* **мара́цкі**, -ая, -ае.

**МАРАКЕ́Н**, -у, *м.* Тканіна са штучнага шоўку, падобная на крэпдэшын. ‖ *прым.* **маракéнавы**, -ая, -ае.

**МАРА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйны сібірскі алень з вялікімі рагамі. ‖ *прым.* **мара́лавы**, -ая, -ае. *Маралавыя рогі. М. запаведнік.*

**МАРАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зўю, -зўеш, -зўе; -зўй; *незак.* Прапаведаваць строгую мараль; павучаць. ‖ *наз.* **маралізáцыя**, -і, *ж.* *і* **маралізавáнне**, -я, *н.*

**МАРАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які любіць маралізаваць. ‖ *ж.* **маралíстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МАРА́ЛЬ**, -і, *ж.* **1.** Сукупнасць прынцыпаў і норм паводзін людзей між сабой і ў адносінах да грамадства. *Чалавек высокай маралі.* **2.** Лагічны павучальны вывад з чаго-н. *М. байкі.* **3.** Павучанне, натацыя (разм.). *Чытаць м.* ‖ *прым.* **мара́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *М. кодэкс.*

**МАРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* мараль. **2.** Які адпавядае правілам маралі, якому ўласціва высокая мараль. *М. ўчынак. М. абавязак.* **3.** Звязаны з унутранымі, душэўнымі перажываннямі. *Маральная падтрымка. Высокі м. дух.* ○ **Маральны знос** — змяншэнне вартасці абсталявання, машын, што знаходзяцца ў эксплуатацыі, незалежна ад змянення іх фізічнай прыдатнасці. ‖ *наз.* **мара́льнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**МАРАПЛА́ВАННЕ**, -я, *н.* Плаванне па морах і акіянах, а таксама майстэрства вадзіць караблі. ‖ *прым.* **марапла́вальны**, -ая, -ае.

**МАРАПЛА́ВЕЦ**, -лáўца, *мн.* -лáўцы, -лáўцаў, *м.* Вандроўнік па морах. ‖ *прым.* **марапла́вальны**, -ая, -ае.

**МАРАТÓРЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (спец.). Устаноўленая ўрадам адтэрміноўка выканання абавязацельстваў на перыяд дзеяння якіх-н. надзвычайных абставін (вайна, крызіс, стыхійнае бедства і інш.). *М. на ядзерныя выпрабаванні.*

**МАРАФЕ́Т**, -у, *М* -фéце, *м.* (разм.). У выразе: **наводзіць (навесці) марафет** — прывесці (прыводзіць) сябе або кватэру (хату) у парадак, навесці (наводзіць) глянец з выпадку свята, урачыстай сустрэчы каго-н.

**МАРАФÓН**, -у, *м.* **1.** Спартыўны бег на дыстанцыю 42 км 195 м, а таксама наогул спартыўныя гонкі на доўгай дыстанцыі. *Лыжны м.* **2.** *перан.* Пра якое-н. спаборніцтва, мерапрыемства, якое праходзіць вельмі доўга. *Шахматны м.* ‖ *прым.* **марафóнскі**, -ая, -ае. *М. бег. М. заплыў.*

**МАРАФÓНЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Спартсмен, які займаецца марафонскім бегам.

**МАРАХÓД**, -а, *М* -хóдзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). Мараплавец, вынаходца марскіх шляхоў.

**МАРАХÓДНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да мараходства, звязаны з мараходствам. *Мараходнае вучылішча. Мараходныя якасці судна.* ‖ *наз.* **марахóднасць**, -і, *ж.*

**МАРАХÓДСТВА**, -а, *н.* Тое, што і *мараплаванне.*

**МА́РАЧНЫ** *гл.* марка.

**МА́РГАНЕЦ**, -нцу, *м.* Хімічны элемент, цвёрды метал серабрыста-белага колеру. ‖ *прым.* **ма́рганцавы**, -ая, -ае.

**МАРГАНЦАВАКІ́СЛЫ**, -ая, -ае. У выразе: **марганцавакіслы калій** — цёмна-фіялетавае крышталічнае рэчыва, якое распускаецца ў вадзе; марганцоўка.

**МА́РГАНЦАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* марганец. **2.** Які змяшчае марганцавую соль. *М. раствор.*

**МАРГАНЦÓЎКА**, -і, *ДМ* -цóўцы, *ж.* (разм.). Крышталі марганцавакіслага калію, а таксама раствор гэтых крышталёў, які выкарыстоўваецца як сродак дэзынфекцыі.

**МАРГАРЫ́Н**, -у, *м.* Харчовы тлушч, які атрымліваюць з сумесі раслінных і жывёльных тлушчаў. ‖ *прым.* **маргары́навы**, -ая, -ае. *М. завод.*

**МАРГАРЫ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Травяністая расліна сямейства астравых з дробнымі ружовымі, белымі і чырвонымі кветкамі. ‖ *прым.* **маргары́ткавы**, -ая, -ае.

**МАРГА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** Міжвольна падымаць і апускаць павекі. *М. вачамі.* **2.** *каму.* Падаваць знак рухам павек, падморгваць. *М. суседу, каб замоўк.* **3.** *перан.* Свяціць мігаючым святлом. *Лямпачка маргае.* **4.** *перан.* Упускаць зручны момант; зяваць (у 2 знач.). ‖ *аднакр.* **маргнýць**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ні́ (да 1—3 знач.). ◊ **Вокам не маргнуць** — 1) не падаць віду; 2) доўга не раздумваць, не вагацца перад тым, як зрабіць што-н. ‖ *наз.* **маргáнне**, -я, *н.*

**МАРДАБÓЙ**, -ю, *м.* (разм.). Бойка, калатня. *Пачаўся страшэнны м.*

**МАРДАВА́ЦЦА**, -дўюся, -дўешся, -дўецца; -дўйся; *незак.* **1.** Выбівацца з сіл, знясільвацца. **2.** Мучыцца, пакутаваць (разм.). *М. над цяжкай задачай.* ‖ *зак.* **замардавáцца**, -дўюся, -дўешся, -дўецца; -дўйся *і* **змардавáцца**, -дўюся, -дўешся, -дўецца; -дўйся.

**МАРДАВА́ЦЬ**, -дўю, -дўеш, -дўе; -дўй; *незак.*, *каго.* **1.** Знясільваць цяжкай працай, марыць. *М. на полі ад цямна да цямна.* **2.** Мучыць, прыносіць пакуты (разм.). *Мардуе думка.* ‖ *зак.* **замардавáць**, -дўю, -дўеш, -дўе; -дўй; -давáны *і* **змардавáць**, -дўю, -дўеш, -дўе; -дўй; -давáны.

**МАРДА́СТЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *мардаты.*

**МАРДА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). З тоўстым, вялікім тварам.

**МАРДВА́**, -ы́, *ж.*, *зб.*, *адз.* мардві́н, -а, *м.* Народ, які складае насельніцтва Рэспублікі Мардовія, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **мардвíнка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **мардóўскі**, -ая, -ае.

**МАРДÓЎЦЫ**, -аў, *адз.* мардóвец, -дóўца, *м.* Тое, што і *мардва.* ‖ *ж.* **мардóўка**, -і, *ДМ* -дóўцы, *мн.* -і, -дóвак. ‖ *прым.* **мардóўскі**, -ая, -ае.

**МАРЖАНЯ́** *і* **МАРЖАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня маржа.

**МАРЖО́ВЫ** *гл.* морж.

**МАРЖЫ́ХА**, -і, *ДМ* -жы́се, *мн.* -і, -жы́х, *ж.* **1.** *гл.* морж. **2.** Самка маржа.

**МАРЗЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.). Азбука Морзэ: сістэма ўмоўных знакаў для перадачы літар і гукаў па тэлеграфе, у радыёпрыёмах. *Стук марзянкі.*

**МА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Знак аплаты паштовых і некаторых іншых збораў звычайна ў выглядзе чатырохвугольнай паперкі з абазначэннем цаны і якім-н. малюнкам. *Калекцыя марак.* **2.** Гандлёвы знак, кляймо на вырабах і таварах. *Фабрычная м.* **3.** Гатунак, тып вырабу, тавару. *М. машыны. М. віна.* **4.** Грашовая адзінка ў Германіі і Фінляндыі да 2002 года. ◊ **Трымаць (вытрымліваць) марку** — падтрымліваць сваю рэпутацыю. ‖ *памянш.* **ма́рачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **ма́рачны**, -ая, -ае (да 1—3 знач.). *Марачнае віно.*

**МА́РКЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Каляровы фламастар, які прымяняецца для выдзялення часткі тэксту. **2.** Прыстасаванне, прызначанае для выдзялення чаго-н.

**МАРКЕ́ТЫНГ**, -у, *м.* (спец.). Сістэма арганізацыі гаспадарчай дзейнасці, заснаваная на вывучэнні рыначнага попыту, магчымасцей збыту прадукцыі, рэалізацыі паслуг.

**МАРКЁР**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая прыслужвае і вядзе падлік пры гульні ў більярд. ‖ *прым.* **маркёрскі**, -ая, -ае.

**МАРКЁР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сельскагаспадарчае прыстасаванне, якім праводзяцца рысы на ворнай зямлі пры пасеве або пасадцы. *Конны м.* ‖ *прым.* **маркёрны**, -ая, -ае.

**МА́РКІ**, -ая, -ае. **1.** Які лёгка робіцца брудным (пра тканіну, адзенне светлага колеру). *М. колер.* **2.** Такі, ад якога можна забрудзіцца. *Маркая праца.* ‖ *наз.* **ма́ркасць**, -і, *ж.*

**МАРКІ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У Заходняй Еўропе: дваранскі тытул, сярэдні паміж графам і герцагам, а таксама асоба, якая мае гэты тытул.

**МАРКІ́ЗА**[1], -ы, *мн.* -ы, -кі́з, *ж.* Жонка або дачка маркіза.

**МАРКІ́ЗА**[2], -ы, *мн.* -ы, -кі́з, *ж.* Навес над акном, дзвярыма, балконам для засцярогі ад сонца.

**МАРКІЗЕ́Т**, -у, *М* -зе́це, *м.* Празрыстая тканіна з тонкай кручанай пражы. ‖ *прым.* **маркізе́тавы**, -ая, -ае. *Маркізетавая сукенка.*

**МАРКІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). **1.** Правесці (праводзіць) баразёнкі маркёрам[2]. **2.** Паставіць (ставіць) марку (у 2 знач.) на вырабах. ‖ *наз.* **маркірава́нне**, -я, *н.* і **маркіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **маркірава́льны**, -ая, -ае.

**МАРКІТА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* У 18 — 19 стст.: гандляр харчовымі прыпасамі і прадметамі ўжытку пры арміі. ‖ *ж.* **маркіта́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **маркіта́нцкі**, -ая, -ае.

**МАРКО́ТА**, -ы, *ДМ* -ко́це, *ж.* Сум, туга, журба. *Душу агарнула м.*

**МАРКО́ТНЫ**, -ая, -ае. Сумны, тужлівы, журботны. *М. позірк.* ‖ *наз.* **марко́тнасць**, -і, *ж.*

**МАРКО́ЎНІК**, -у, *м.* **1.** *зб.* Націнне морквы. **2.** Травяністая расліна сямейства парасонавых з лісцем, падобным да лісця морквы. ‖ *прым.* **марко́ўнікавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**МАРКО́ЎНЫ** *гл.* морква.

**МАРКО́ЦІЦЦА**, -ко́чуся, -ко́цішся, -ко́ціцца; *незак.* Сумаваць, тужыць, журыцца. ‖ *зак.* **замарко́ціцца**, -ко́чуся, -ко́цішся, -ко́ціцца.

**МАРКСІ́ЗМ**, -у, *м.* Навуковая сістэма філасофскіх, эканамічных і сацыяльна-палітычных поглядаў, распрацаваная К. Марксам і Ф. Энгельсам. ‖ *прым.* **маркасі́сцкі**, -ая, -ае.

**МАРКСІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік марксізму. ‖ *ж.* **маркасі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МАРКШЭ́ЙДАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па геадэзічных вымярэннях горных распрацовак і правільнай эксплуатацыі нетраў. ‖ *прым.* **маркшэ́йдарскі**, -ая, -ае.

**МА́РЛЯ**, -і, *ж.* Тонкая баваўняная тканіна з рэдка пераплеценых нітак, якая ўжыв. галоўным чынам у медыцыне. ‖ *прым.* **ма́рлевы**, -ая, -ае. *Марлевая павязка.*

**МАРМЕЛА́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Цукеркі з фруктова-ягаднага соку, жэлейных рэчываў і цукру. ‖ *прым.* **мармела́дны**, -ая, -ае.

**МАРМО́ЛЬ**, -маля́, *мн.* -малі́, -малёў, *м.* (разм.). Нелюдзімы, пануры, негаваркі чалавек.

**МА́РМУР**, -у, *м.* Цвёрды камень крышталічнай пароды, які ўжыв. для скульптурных і архітэктурных работ. ‖ *прым.* **мармуро́вы**, -ая, -ае.

**МАРМУРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Распісаць (распісваць), апрацаваць (апрацоўваць) пад мармур. ‖ *наз.* **мармура́цыя**, -і, *ж.*

**МАРМУРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па апрацоўцы мармуру.

**МАРМЫТА́ЦЬ**, -мычу́, -мы́чаш, -мы́ча; -мычы́; *незак.* Гаварыць ціха і невыразна; бубніць. ‖ *наз.* **мармыта́нне**, -я, *н.*

**МАРМЫТУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Той, хто пастаянна мармыча. ‖ *ж.* **мармыту́ха**, -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х.

**МАРМЫ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Прынада для лоўлі рыбы: кручок, упаяны ў свінцовую драбінку. *Лавіць рыбу на мармышку.*

**МА́РНА**, *прысл.* Дарэмна, упустую. *М. траціць час.*

**МАРНАВА́ЦЦА**, -ну́юся, -ну́ешся, -ну́ецца; -ну́йся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Траціцца без карысці, прападаць. *Марнуюцца сілы.* **2.** Тое, што і *мардавацца* (у 2 знач.). *М. ў турме.* ‖ *зак.* **змарнава́цца**, -ну́юся, -ну́ешся, -ну́ецца; -ну́йся.

**МАРНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *незак.* **1.** *што.* Траціць без карысці, марнатравіць. *М. час.* **2.** *каго.* Мучыць, стамляць. *М. людзей.* ‖ *зак.* **змарнава́ць**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны. ‖ *наз.* **марнава́нне**, -я, *н.*

**МАРНАСЛО́ЎЕ**, -я, *н.* Пустая размова, пустаслоўе. ‖ *прым.* **марнасло́ўны**, -ая, -ае.

**МАРНАТРА́ВЕЦ**, -ра́ўца, *мн.* -ра́ўцы, -ра́ўцаў, *м.* **1.** Той, хто неразумна, марна траціць што-н. **2.** Пра дрэннага чалавека. ‖ *ж.* **марнатра́ўка**, -і, *ДМ* -ра́ўцы, *мн.* -і, -ра́вак. ‖ *прым.* **марнатра́ўны**, -ая, -ае. *Марнатраўнае жыццё.*

**МАРНАТРА́ВІЦЬ**, -ра́ўлю, -ра́віш, -ра́віць; *незак., што.* Тое, што і *марнаваць* (у 1 знач.). *М. набытак.*

**МАРНАТРА́ЎСТВА**, -а, *н.* Неразумная, марная трата чаго-н. *Выкараняць м.*

**МАРНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Засыхаць, чахнуць, чэзнуць. *Сад марнее без дажджу.* **2.** Гібець, чахнуць (пра чалавека). *М. ад нуды.* **3.** Занепадаць, марна прападаць. *Марнее зямля.* ‖ *зак.* **змарне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**МА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Дарэмны, бескарысны. *Марныя намаганні.* **2.** Змарнелы, чэзлы, худасочны. *М. конік той ледзь цягне.* ‖ *наз.* **ма́рнасць**, -і, *ж.*

**МАРО́ЖАНАЕ**, -ага, *н.* Замарожаная салодкая ежа са смятанкі, пладова-ягаднага соку.

**МАРО́ЖАНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Прыстасаванне для прыгатавання марожанага.

**МАРО́ЖАНШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прадавец марожанага. ‖ *ж.* **маро́жаншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**МАРО́ЖАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які замарозілі. *Марожаная рыба.* **2.** Папсаваны марозам, мёрзлы. *Марожаная бульба.*

**МАРО́З**, -у, *мн.* маразы́, маразо́ў, *м.* **1.** Моцны холад, сцюжа. *М. бярэцца нанач. Дваццаць градусаў марозу.* **2.** Вельмі халоднае надвор'е. *Трашчаць маразы.* ‖ *памянш.* **маро́зік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **маро́зны**, -ая, -ае.

**МАРОЗАТРЫВА́ЛЫ**, -ая, -ае. Які не траціць сваіх уласцівасцей ад марозу. *М. бетон.* ‖ *наз.* **марозатрыва́ласць**, -і, *ж.*

**МАРОЗАЎСТО́ЙЛІВЫ**, -ая, -ае. Здольны пераносіць моцны мароз. *Марозаўстойлівыя расліны.* ‖ *наз.* **марозаўсто́йлівасць**, -і, *ж.*

**МАРО́ЗІВА**, -а, *н.* Тое, што і *марожанае.*

**МАРО́ЗІЦЬ**, -ро́жу, -ро́зіш, -ро́зіць; *незак.* **1.** Моцна ахаладжваць, замарожваць што-н. *М. яблыкі.* **2.** *каго-што.* Нішчыць холадам, марозам. *М. прусакоў.* **3.** *безас.* Пра марознае, халоднае надвор'е. *З раніцы марозіць.* ‖ *прым.* **маразі́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**МАРО́КА**, -і, *ДМ* -ро́цы, *ж.* (разм.). Аб чым-н. блытаным, клапотным. *З гэтай справай адна м.*

**МАРО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак., каго-што* (разм.). Уводзіць у зман, ашукваць каго-н. *М. людзей.* ◊ **Марочыць галаву** *каму-н.* — збіваць з толку, знарок падманваць. ‖ *зак.* **абмаро́чыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны, **замаро́чыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны *і* **замарачы́ць**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чаце́, -ча́ць; -чо́ны.

**МАРО́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* Балотная расліна сямейства ружавых з аранжавымі духмянымі ядомымі ягадамі, а таксама яе ягады. *Спелая м.* ‖ *прым.* **маро́шкавы**, -ая, -ае.

**МАРСЕЛЬЕ́ЗА**, -ы, *ж.* Песня часоў Французскай буржуазнай рэвалюцыі, якая стала нацыянальным гімнам Францыі.

**МАРСКІ́** *гл.* мора.

**МАРТЫРАЛО́Г**, -а, *мн.* -і, -аў *м.* (спец.). **1.** Зборнік сярэдневяковых аповесцей пра хрысціянскіх мучанікаў. **2.** Спіс ахвяр без віны замучаных, пакараных смерцю.

**МАРТЫ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Маленькая малпа з доўгімі заднімі нагамі, доўгім хвастом і вузканосай мордай. ‖ *прым.* **марты́шчын**, -а.

**МАРТЭ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльная плавільная печ для вытворчасці сталі з чыгуну і стальнога лому. ‖ *прым.* **мартэ́наўскі**, -ая, -ае. *Мартэнаўская сталь. М. цэх.*

**МАРУ́ДА**, -ы, *Д* -у, *Т* -ам, *М* -дзе, *м.; ДМ* -дзе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -ру́д (разм.). Чалавек, які вельмі павольна ўсё робіць.

**МАРУ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* Рабіць што-н. вельмі павольна, доўга не пачынаць якой-н. справы. *М. з вырашэннем пытання.*

**МАРУ́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Які павольна, без паспешлівасці робіць што-н. ‖ *наз.* **мару́длівасць**, -і, *ж.*

**МАРУ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Павольны, няспешны, непаваротлівы; *проціл.* хуткі. *Марудная хада. Марудна* (прысл.) *пісаць.* **2.** Карпатлівы. *Марудная праца.* ‖ *наз.* **мару́днасць**, -і, *ж.*

**МАРФАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Навука аб форме і будове арганізмаў. *М. чалавека. М. жывёл. М. раслін. М. глебы.* **2.** Раздзел граматыкі, які вывучае часціны мовы, іх катэгорыі і формы слоў. *Спецыяліст па марфалогіі. Апісанне марфалогіі беларускай мовы.* ‖ *прым.* **марфалагі́чны**, -ая, -ае.

**МАРФАНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Раздзел мовазнаўства, які вывучае фаналагічную структуру марфем і выкарыстанне фаналагічных сродкаў у марфалогіі (у 2 знач.). ‖ *прым.* **марфаналагі́чны**, -ая, -ае.

**МАРФЕ́МА**, -ы, *мн.* -ы, -фе́м, *ж.* У граматыцы: частка слова, якая мае лексічнае ці граматычнае значэнне (корань, прыстаўка, суфікс і інш.). ‖ *прым.* **марфе́мны**, -ая, -ае.

**МАРФІ́Н**, -у, *м.* Наркатычны і болесуцішальны сродак, што здабываецца з млечнага соку опійнага маку. ‖ *прым.* **марфі́нны**, -ая, -ае.

**МАРФІНІ́ЗМ**, -у, *м.* Нездаровая цяга да марфіну як наркотыку.

**МАРФІНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто пакутуе марфінізмам. ‖ *ж.* **марфіні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **марфіні́сцкі**, -ая, -ае.

**МАРЦІ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́р, *ж.* (гіст.). Караткаствольная артылерыйская гармата. ‖ *прым.* **марці́рны**, -ая, -ае.

**МАРЦО́ВЫ**. У выразах: **марцовы кавалер** (разм., жарт.) — стары валацуга, які любіць заляцацца да жанчын; **кот марцовы** — распуснік, блуднік.

**МАРЦЫПА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кандытарскі выраб з міндальнага цеста. ‖ *прым.* **марцыпа́навы**, -ая, -ае. *Марцыпанавыя цукеркі.*

**МАРШ**[1], -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Спосаб строга рытмічнай хадзьбы ў страі. *Цырыманіяльны м.* **2.** -у. Пераход войск паходным парадкам; паход. *Імклівы м.* **3.** -а. Музычны твор. *Спартыўны м.* ‖ *прым.* **ма́ршавы**, -ая, -ае.

**МАРШ**[2], *выкл.* **1.** Каманда, загад рухацца ў страі. *Шагам м.!* **2.** Ужыв. як загад выйсці, пайсці куды-н. *М. адсюль! Да дому м.!*

**МАРШ**[3], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Частка лесвіцы паміж дзвюма пляцоўкамі. *Лесвіца ў тры маршы.*

**МА́РШАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* марш[1]. **2.** Які адпраўляецца для папаўнення дзеючай арміі з запасных войск. *Маршавая рота.*

**МА́РШАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Воінскае званне, вышэйшае за генеральскае, якое прысвойваецца за выдатныя заслугі ў кіраўніцтве войскамі, а таксама асоба, якая мае такое званне. *М. бранятанкавых войск. Галоўны м. авіяцыі.* ‖ *прым.* **ма́ршальскі**, -ая, -ае.

**МАРША́ЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* (гіст.). **1.** Вышэйшая службовая асоба ў Вялікім Княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай. **2.** У Беларусі ў 19 ст.: выбраны з ліку шляхты кіраўнік губерні або павета.

**МАРШРУ́Т**, -у, *М* -ру́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Шлях руху, звычайна вызначаны загадзя. *Турысцкі м.* ‖ *прым.* **маршру́тны**, -ая, -ае. *Маршрутнае таксі.*

**МАРШЧА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *маршчына.*

**МАРШЧЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -чы́н, *ж.* Складка, згіб на скуры твару, цела, а таксама няроўнасць на паверхні чаго-н. ‖ *памянш.* **маршчы́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**МАРШЧЫ́НІСТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты маршчынамі. *М. лоб.* ‖ *наз.* **маршчы́ністасць**, -і, *ж.*

**МАРШЧЫ́НІЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ніцца; *незак.* Тое, што і *моршчыцца* (у 3 знач.).

**МАРШЧЫ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., што.* Утвараць маршчыны, моршчыць. *М. лоб. Хвалі маршчыняць ваду.*

**МАРШЫРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак.* Крочыць, ісці маршам[1] (у 1 знач.), мерным шагам, па-ваеннаму. ‖ *зак.* **прамаршырава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й. ‖ *наз.* **маршыро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж. і* **маршырава́нне**, -я, *н.*

**МА́РЫВА**, -а, *н.* Трымцячы слой цёплага паветра каля паверхні зямлі; смуга. ‖ *прым.* **ма́рыўны**, -ая, -ае.

**МАРЫ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -ры́ец, -ры́йца, *м.* Народ угра-фінскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Рэспублікі Марый Эл, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **мары́йка**, -і, *ДМ* -ры́йцы, *мн.* -і, -ры́ек. ‖ *прым.* **мары́йскі**, -ая, -ае.

**МАРЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Вадкасць, якой насычаюць драўляную паверхню з мэтай афарбоўкі (спец.). **2.** Прыстасаванне, у якім морацъ насякомых (разм.).

**МАРЫНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *незак., што.* **1.** Кансерваваць, нарыхтоўваць што-н. у марынадзе (у 1 знач.). *М. грыбы.* **2.** *перан.* Знарок затрымліваць, адкладваць рашэнне, выкананне чаго-н. (разм.). *М. справу.* ‖ *зак.* **замарынава́ць**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны. ‖ *наз.* **марынава́нне**, -я, *н.*

**МАРЫНА́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вадкі соус з воцату, прыпраў і алею. **2.** звычайна *мн.* Замарынаваныя прадукты. ‖ *прым.* **марына́дны**, -ая, -ае.

**МАРЫНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак, які малюе марскія краявіды. ‖ *ж.* **марыні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МАРЫХУА́НА**, -ы, *ж.* Наркотык, які здабываецца з індыйскіх канапель.

**МАРЫ́ЦЦА**, мару́ся, мо́рышся, мо́рыцца; *незак.* Таміцца, мучыцца.

**МА́РЫЦЬ**, ма́ру, ма́рыш, ма́рыць; *незак., пра каго-што, аб кім-чым і з інф.* Аддавацца марам, думаць пра ажыццяўленне чаго-н. вельмі жаданага. *М. аб спатканні. М. пра цікавае падарожжа.* ‖ *зак.* **пама́рыць**, -ру, -рыш, -рыць.

**МАРЫ́ЦЬ**, мару́, мо́рыш, мо́рыць; мо́раны; *незак.* **1.** *каго (што).* Труціць, знішчаць. *М. прусакоў.* **2.** *каго (што).* Мучыць, мардаваць. *М. голадам.* **3.** *перан., каго (што).* Даводзіць да знямогі. *М. смешнымі апавяданнямі. Сон морыць.* **4.** *што.* Трымаць драўніну ў вадзе, у спецыяльным растворы для надання ёй цёмнага колеру і моцнасці (спец.). *М. дуб.* ‖ *зак.* **замары́ць**, -мару́, -мо́рыш, -мо́рыць; -мо́раны (да 2 і 3 знач.), **памары́ць**, -мару́, -мо́рыш, -мо́рыць; -мо́раны (да 1, 2 і 4 знач.) *і* **умары́ць**, -мару́, -мо́рыш, -мо́рыць; -мо́раны (да 2 і 3 знач.).

**МАРЫЯНЕ́ТАЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** З удзелам марыянетак (у 1 знач.). *М. тэатр.* **2.** *перан.* Які не мае самастойнасці, а слепа выконвае чыю-н. волю. *М. урад.*

**МАРЫЯНЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Лялька, якой кіруе акцёр пры дапамозе спецыяльнага прыстасавання. *Тэатр марыянетак.* **2.** *перан.* Пра чалавека, урад, які бяздумна дзейнічае па ўказцы, па волі іншых.

**МАРЭ́НА**[1], -ы, *ж.* (спец.). Абломкавыя горныя пароды, якія ўтвараюцца ад перамяшчэння ледавіка. ‖ *прым.* **марэ́нны**, -ая, -ае. *Марэнная града. Марэнныя ўзгоркі.*

**МАРЭ́НА**[2], -ы, *мн.* -ы, -рэ́н, *ж.* Травяністая расліна сямейства марэнавых, з каранёў якой здабываецца чырвоная фарба. ‖ *прым.* **марэ́навы**, -ая, -ае.

**МАРЭ́НГА**, *прым., нязм.* Чорны з шэрым адценнем. *Касцюм м.*

**МА́СА**, -ы, *мн.* -ы, мас, *ж.* **1.** Фундаментальная фізічная велічыня, якая вызначае інертныя і гравітацыйныя ўласцівасці цел (спец.). *Адзінка масы.* **2.** Цестападобнае бясформеннае рэчыва, густая сумесь. *Расплаўленая м. чыгуну. Сырковая м.* **3.** Што-н. вялікае, якое выступае ў агульных рысах і ўспрымаецца як цэлае. *Будынак узвышаўся цёмнай масай.* **4.** *каго-чаго.* Мноства, вялікая колькасць каго-, чаго-н. (разм.). *М. народу.* **5.** Шырокія колы працоўнага насельніцтва. *Воля мас.*

**МАСАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Той, хто вядзе работу з масамі людзей, сярод мас, а таксама арганізоўвае масавыя гульні, танцы, гутаркі.

**МА́САВЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, у якім удзельнічае вялікая колькасць людзей. *М. гераізм савецкіх воінаў.* **2.** Які выпускаецца ў вялікай колькасці. *Масавая вытворчасць тэлевізараў.* **3.** Прызначаны для шырокіх колаў насельніцтва. *Тавары масавага ўжытку.* **4.** Які належыць да шырокіх колаў насельніцтва. *М. чытач.* ‖ *наз.* **ма́савасць**, -і, *ж.*

**МАСА́Ж**, -у, *м.* Расціранне цела з лячэбнай, аздараўляльнай мэтай. *М. твару.* ‖ *прым.* **маса́жны**, -ая, -ае.

**МАСАЖАВА́ЦЬ**, -жу́ю, -жу́еш, -жу́е; -жу́й; -жава́ны; *незак., каго-што.* Рабіць масаж. *М. хвораму руку.* ‖ *наз.* **масажава́нне**, -я, *н.*

**МАСАЖЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па масажы. ‖ *ж.* **масажы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **масажы́сцкі**, -ая, -ае.

**МАСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго-што* (спец.). Сканцэнтраваць (канцэнтраваць) у адным месцы (войскі, авіяцыю, артылерыйскі агонь і пад.). *М. артылерыю.* ‖ *наз.* **масіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**МАСІ́Ў**, -сі́ву, *мн.* -сі́вы, -сі́ваў, *м.* **1.** Горнае ўзвышша аднароднай геалагічнай будовы. *Горныя масівы.* **2.** Вялікая прастора, аднародная па якіх-н. прыметах. *Лясныя масівы.* ‖ *прым.* **масі́ўны**, -ая, -ае.

**МАСІ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* масіў. **2.** Цяжкі, вялікі. *Масіўнае збудаванне. Масіўная фігура.* ‖ *наз.* **масі́ўнасць**, -і, *ж.*

**МА́СКА**, -і, *ДМ* ма́сцы, *мн.* -і, ма́сак, *ж.* **1.** Накладка на твар, падобная на звярыную морду або чалавечы твар з выразам для вачэй, а таксама чалавек у такой накладцы. *Навагодняя м. М. зайца.* **2.** *перан.* Прытворства, якое хавае сутнасць каго-, чаго-н. *Прыкрывацца маскай.* **3.** Злепак з гіпсу, зняты з твару нябожчыка. *Пасмяротная м.* **4.** Засцерагальная накладка на твар. *Супрацьгазавая м.* **5.** У касметыцы: слой накладзенага на твар лекавага сродку, крэму і пад. ◊ **Скінуць маску** — паказаць сваю сапраўдную сутнасць.

**МАСКАРА́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Баль, вечар, на які прыходзяць у масках і спецыяльных касцюмах. *Навагодні м.* **2.** *перан.* Прытворства, падман. ‖ *прым.* **маскара́дны**, -ая, -ае.

**МАСКАТЭ́ЛЬ**, -і, *ж., зб.* Хімічныя рэчывы (фарбы, клей і інш.) як прадмет гандлю. ‖ *прым.* **маскатэ́льны**, -ая, -ае. *Маскатэльныя тавары.*

**МАСКІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак., каго-што.* **1.** Апранаць каго-н. у маскарадны касцюм, надзяваць маску. **2.** Рабіць каго-, што-н. нябачным для каго-н. *М. танкі. М. свой намер* (перан.). ‖ *зак.* **замаскірава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. ‖ *звар.* **маскірава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *зак.* **замаскірава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся. ‖ *наз.* **маскіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **маскіро́вачны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *М. халат.*

**МАСКІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* маскіраваць. **2.** *мн.* -і, -ро́вак. Тое, чым маскіруюць, маскіруюцца. *Зняць маскіроўку.*

**МАСКІ́Т**, -а, *М* -кіце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Крывасоснае паўднёвае насякомае атрада двухкрылых. ‖ *прым.* **маскі́тны**, -ая, -ае.

**МА́СЛА**, -а, *н.* **1.** Харчовы тлушч, атрыманы збіваннем смятанкі або смятаны. *Топленае м.* **2.** Тлустае рэчыва мінеральнага паходжання. *Змазачнае м.* ◊ **Масла масленае** — пра таўталогію, паўтарэнне чаго-н. **Падліць масла ў агонь** — абвастрыць якія-н. непрыязныя адносіны, пачуцці. **Як па масле** — лёгка, без цяжкасцей. ‖ *прым.* **ма́слены**, -ая, -ае. *Масленая пляма.*

**МАСЛА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. масла, маслены, напр.: *маслаадстойнік, маслабак, маслаёмістасць, маслазаправачны, маслазбівальны, масланаліўны, маслапомпа, маслараспыляльнік, масласепаратар, маслафасовачны.*

**МАСЛАБО́ЙКА**, -і, *ДМ* -бо́йцы, *мн.* -і, -бо́ек, *ж.* Прылада для збівання масла (у 1 знач.).

**МАСЛАБО́ЙНЯ**, -і, *мн.* -і, -бо́ень *і* -яў, *ж.* Прадпрыемства па вырабе масла (у 1 знач.). ‖ **маслабо́йны**, -ая, -ае. *М. завод.*

**МАСЛАЗАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Завод, які вырабляе харчовае масла.

**МАСЛАРО́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па вырабе масла.

**МАСЛАРО́БСТВА**, -а, *н.* **1.** Працэс перапрацоўкі малака ў масла. **2.** Галіна малочнай прамысловасці па вырабе харчовага масла. ‖ *прым.* **масларо́бчы**, -ая, -ае.

**МА́СЛЕНІЦА**[1], -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Пасудзіна для падачы на стол сметанковага масла.

**МА́СЛЕНІЦА**[2], -ы, *ж.* **1.** (з вялікай літары). Старажытнае славянскае свята праводаў зімы, аднесенае на тыдзень перад Вялікім постам. *Святкаваць Масленіцу.* **2.** Аб добрым, забяспечаным жыцці. *Не жыццё, а м.* ‖ *прым.* **ма́сленічны**, -ая, -ае.

**МА́СЛЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* масла. **2.** Які працуе на масле. *М. абагравальнік.* **3.** Намазаны, насычаны маслам. *М. блін.* **4.** *перан.* Лісліві, падлізлівы. *Масленыя словы.* **5.** *перан.* Юрлівы (пра вочы, позірк).

**МАСЛЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла. *Напіцца маслёнкі.* **2.** Пасудзіна для змазачнага масла.

**МАСЛІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -лі́н, *ж.* Аліўкавае дрэва, а таксама яго плод. ‖ *прым.* **масліна́вы**, -ая, -ае. *М. гай. Сямейства маслінавых* (наз.).

**МА́СЛІЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ліцца; *незак.* Блішчаць, ільсніцца (пра вочы, твар).

**МА́СЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *незак., што.* Намазваць харчовым маслам, класці масла ў ежу. *М. кашу.* ‖ *зак.* **нама́сліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены *і* **пама́сліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены.

**МАСЛЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Грыб з жоўта-карычневай слізістай шапкай.

**МАСЛЯНІ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** У склад якога ўваходзіць масла. *Маслянiстая вадкасць.* **2.** *перан.* Які мае мяккі бляск. *Маслянiстыя вочы.* ‖ *наз.* **маслянíстасць**, -і, *ж.*

**МАСНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* Тое, што і *масні́чына.*

**МАСНІ́ЧЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -чын, *ж.* Дошка ў падлозе або ў якім-н. драўляным насціле.

**МАСО́Н**, -а, *мн.* -ы, -наў, *м.* Паслядоўнік масонства, член масонскай ложы. ‖ *прым.* **масо́нскі**, -ая, -ае.

**МАСО́НСТВА**, -а, *н.* Рэлігійна-філасофская плынь з містычнымі абрадамі, якая злучае задачы духоўнага самаўдасканалення і працу на карысць грамадства. ‖ *прым.* **масо́нскі**, -ая, -ае. *М. рух.*

**МАСО́ЎКА**, -і, *ДМ* -со́ўцы, *мн.* -і, -со́вак, *ж.* (разм.). **1.** У дарэвалюцыйнай Расіі: тайны сход рэвалюцыйна настроеных рабочых. *Сабрацца на масоўку.* **2.** Масавая сцэна (у кіно, тэатры). *Артыст, заняты ў масоўцы.*

**МАСТАВА́Я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* Брукаваная або пакрытая асфальтам праезджая частка вуліцы.

**МАСТАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Спецыяліст па будаўніцтве мастоў.

**МАСТАВЫ́** *гл.* мост.

**МАСТАДО́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялізная вымерлая млекакормячая жывё-

ліна атрада хобатных. *Не чалавек, а м.* (перан.: пра каго-н. вялікага і нязграбнага). || *прым.* **мастадóнтавы**, -ая, -ае.

**МАСТА́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* **1.** Работнік мастацтва, жывапісец. *М.-дэкаратар.* **2.** Чалавек, які творча працуе ў якой-н. галіне мастацтва. *М. слова.* **3.** *перан.* Той, хто дасягнуў высокай дасканаласці ў якой-н. справе. *М. рабіць чучалы птушак.* || *ж.* **мастáчка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. || *прым.* **мастáцкі**, -ая, -ае.

**МАСТАЎШЧЫ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Тое, што і *мостабудаўнік.*

**МАСТА́ЦКІ**, -ая, -ае. **1.** Які мае adносіны да мастацтва, да дзейнасці ў галіне мастацтва. *Мастацкае вучылішча. М. кіраўнік тэатра.* **2.** Які перадае рэчаіснасць у вобразах. *Мастацкая літаратура.* **3.** Які адпавядае патрабаванням мастацтва, эстэтычны, прыгожы. *Мастацкія асаблівасці рамана. М. густ.* || *наз.* **мастáцкасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**МАСТА́ЦТВА**, -а, *н.* **1.** Творчая перадача рэчаіснасці ў мастацкіх вобразах. *Творы мастацтва.* **2.** Галіна творчай мастацкай дзейнасці. *Выяўленчае м. Сцэнічнае м.* **3.** Уменне, майстэрства, тонкае веданне справы. *Пеўчае м. Ваеннае м.* ◊ **Па ўсіх правілах мастацтва** — вельмі ўмела, памайстэрску.

**МАСТАЦТВАЗНА́ВЕЦ**, -нáўца, *мн.* -нáўцы, -нáўцаў, *м.* Спецыяліст у галіне мастацтвазнаўства.

**МАСТАЦТВАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Навука аб мастацтве (у 2 знач.). || *прым.* **мастацтвазнáўчы**, -ая, -ае.

**МАСТО́К** *гл.* мост.

**МАСТЫ́Т**, -у, *М* -тыце, *м.* Запаленне малочнай залозы; грудніца. || *прым.* **мастытны**, -ая, -ае.

**МАСЦІ́КА**, -і, *ДМ* -ціцы, *ж.* **1.** Густая вязкая маса, якая ўжыв. ў тэхніцы, будаўніцтве. **2.** Сумесь воску з фарбай для націрання паркетнай падлогі. **3.** Пахучая смала некаторых дрэў. || *прым.* **масцíкавы**, -ая, -ае *і* **масцíчны**, -ая, -ае. *Масцікавая смала.*

**МАСЦІ́СТЫ**, -ая, -ае. Добрай, чыстай масці (пра каня).

**МАСЦІ́ТЫ**, -ая, -ае. Які заслужыў сваёй шматгадовай плённай дзейнасцю павагу і прызнанне. *М. вучоны.* || *наз.* **масцíтасць**, -і, *ж.*

**МАСЦІ́ЦЦА**, машчýся, мóсцішся, мóсціцца; *незак.* **1.** Зручна размяшчацца, уладкоўвацца. *М. на возе.* **2.** *перан.* Мець пэўны намер, намервацца (разм.). *Ці не ў начальнікі ён мосціцца?*

**МАСЦІ́ЦЬ**, машчý, мóсціш, мóсціць; мóшчаны; *незак., што.* **1.** Рабіць насціл з дошак, бярвення. *М. падлогу.* **2.** Тое, што і *брукаваць. М. брук.* **3.** Старанна ўкладваць, размяшчаць (разм.). *М. мэблю ў кузаў.* || *зак.* **вы́масціць**, -машчу, -масціш, -масціць; -машчаны (да 2 знач.), **замасцíць**, -машчý, -мóсціш, -мóсціць; -мóшчаны (да 1 і 2 знач.) *і* **намасцíць**, -машчý, -мóсціш, -мóсціць; -мóшчаны (да 1 і 3 знач.). || *наз.* **машчэ́нне**, -я, *н.*

**МАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -éй, *ж.* **1.** Колер шэрсці ў жывёл. *Конь гнядой масці.* **2.** Частка калоды ігральных карт, якая адрозніваецца колерам і формай ачкоў. *Званковая м.* ◊ **Усіх масцей** (неадабр.) — розных відаў, напрамкаў, поглядаў.

**МАТ**[1], -а, *М* мáце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пройгрыш у шахматнай гульні. *Спёрты м.* || *прым.* **мáтавы**, -ая, -ае. *Матавая пазіцыя.*

**МАТ**[2], -а, *М* мáце, *м.* (разм.). Брыдкая лаянка. || *прым.* **мáцерны**, -ая, -ае.

**МА́ТА**, -ы, *ДМ* мáце, *мн.* -ы, мат, *ж.* Пляцёнка з саломы, чароту, травы і пад., якую звычайна сцелюць на падлогу.

**МАТАВА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. матавы, напр.: *матава-белы, матава-блакітны, матава-малочны, матава-серабрысты.*

**МАТАВІ́ЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Прыстасаванне для змотвання нітак у маткі. **2.** Частка жняяркі, камбайна і пад., якая нагінае сцябліны збажыны, травы да рэжучага апарата.

**МАТАВО́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лакаматыў з рухавіком унутранага згарання невялікай магутнасці, прызначаны для дапаможных і манеўровых работ. || *прым.* **матавóзны**, -ая, -ае.

**МА́ТАВЫ**, -ая, -ае. **1.** Без глянцу, бляску. *М. колер твару.* **2.** Паўпразрысты. *Матавае шкло.* || *наз.* **мáтавасць**, -і, *ж.*

**МАТАДО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік бою быкоў, які наносіць смяротны ўдар быку.

**МАТА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Прыстасаванне для змотвання чаго-н.

**МАТА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца матаннем (нітак, пражы і пад.). || *ж.* **матáльшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. || *прым.* **матáльшчыцкі**, -ая, -ае.

**МАТАРЫЗАВА́ЦЬ**, -зýю, -зýеш, -зýе; -зýй; -завáны; *зак.* і *незак., што.* Аснасціць (аснашчаць) маторамі, аўтатранспартам. *М. армію.* || *наз.* **матарызáцыя**, -і, *ж.*

**МАТАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочы, які абслугоўвае маторы. || *ж.* **матары́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **матары́сцкі**, -ая, -ае.

**МАТА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Рухацца з аднаго боку ў другі, знаходзячыся ў вісячым становішчы. *Вяроўка матаецца.* **2.** Праводзіць час у раз'ездах, клапоцячыся аб чым-н. (разм.). *М. па раёне.*

**МАТА́ЦЬ**[1], -áю, -áеш, -áе; -áны; *незак.* **1.** *што.* Віць, навіваць, накручваць. *М. ніткі.* **2.** *чым.* Рухаць з боку ў бок, махаць чым-н. *М. галавой.* **3.** Хутка ісці, бегчы куды-н.; уцякаць, паспешна выбірацца адкуль-н. (разм., груб.). *Матай адсюль!* || *зак.* **наматáць**, -áю, -áеш, -áе; -áны (да 1 знач.); *наз.* **намóтка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* (да 1 знач.). || *аднакр.* **матнýць**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ні́ (да 2 знач.). || *наз.* **матáнне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.). || *прым.* **матáльны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**МАТА́ЦЬ**[2], -áю, -áеш, -áе; *незак., што* (разм.). Неэканомна, неразумна траціць грошы, маёмасць. || *зак.* **праматáць**, -áю, -áеш, -áе; -áны *і* **разматáць**, -áю, -áеш, -áе; -áны. || *наз.* **матáнне**, -я, *н.*

**МАТАЦЫ́КЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Двухколая машына з рухавіком унутранага згарання. *М. з каляскай.* || *прым.* **матацыклéтны**, -ая, -ае. *М. завод.*

**МАТАЦЫКЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Яздок на матацыкле. || *ж.* **матацыклíстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **матацыклíсцкі**, -ая, -ае.

**МА́ТАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Найбольшая ячэйка ў сотах, у якой выводзіцца пчаліная матка. **2.** Памяшканне для матак якога-н. віду свойскай жывёлы. **3.** Расліна, якая выкарыстоўваецца для вырошчвання новых раслін (спец.). **4.** Участак, дзе растуць насеннікі або саджанцы якіх-н. раслін (спец.).

**МА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Тое, што і *маці.* **2.** Самка жывёл і насякомых, якая выводзіць патомства. **3.** Унутраны палавы орган жанчын і самак жывародзячых жывёл, у якім развіваецца зародак. **4.** (звычайна ў прыдатку). Аб тым, што з'яўляецца самым родным і блізкім. *Зямля-м.* || *прым.* **мáтачны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**МАТКО́ВЫ**, -ая, -ае. Зматаны ў маткі, у матках. *Матковая пража.*

**МАТЛАШЫ́ЦЬ**, -лашý, -лóшыш, -лóшыць; -лóшаны; *незак.* (разм.). **1.** *што.* Ірваць на шматкі, кавалкі. **2.** *што.* Прыводзіць у бязладны стан. *Вецер матлошыць голле.* **3.** Біць, дубасіць, нішчыць. *Матлошаць адзін аднаго.* || *зак.* **зматлашы́ць**, -лашý, -лóшыш, -лóшыць; -лóшаны. || *наз.* **матлашэ́нне**, -я, *н.*

**МАТЛЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -я́ецца; *незак.* (разм.). **1.** Тое, што і *матацца* (у 1 знач.). *Рукі матляюцца як чужыя. Бялізна матляецца на вяроўцы.* **2.** Часта рухацца з боку ў бок, хістацца.

**МАТЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., чым* (разм.). Тое, што і *матаць*[1] (у 2 знач.). *М. нагамі. Конь матляе хвастом.* || *наз.* **матля́нне**, -я, *н.*

**МАТНУ́ЦЦА**, -нýся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -нýцца; -нíся; *зак.* Хутка кінуцца, пабегчы куды-н. *Невядомая постаць матнулася цераз дарогу.*

**МАТНУ́ЦЬ** *гл.* матаць[1].

**МАТНЯ́**, -í, *мн.* -í, -éй, *ж.* Мяшок у задняй частцы рыбалоўнай снасці, куды трапляе рыба пры лоўлі.

**МАТО́К**, -ткá, *мн.* -ткí, -ткóў, *м.* Роўна зматаныя або навітыя на што-н. ніткі, дрот і пад. *Ніткі ў матках.*

**МАТО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рухавік, машына, якая ператварае які-н. від энергіі ў механічную. *Шум матораў.* || *прым.* **матóрны**, -ая, -ае. *М. завод.*

**МАТО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (разм.). Маторная лодка.

**МАТО́РНЫ**[1], -ая, -ае (спец.). Рухальны (пра псіхафізіялагічныя працэсы). *Маторная памяць.* ‖ *наз.* **мато́рыка**, -і, *ж.*

**МАТО́РНЫ**[2], -ая, -ае. **1.** *гл.* матор. **2.** Які прыводзіцца ў рух маторам. *Маторная піла.*

**МАТРА́Ц**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мяккая тоўстая ватовая падсцілка на ложак або прадмет такога ж прызначэння са спружынным каркасам. ‖ *прым.* **матра́цны**, -ая, -ае.

**МАТРО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Марак, які не адносіцца да каманднага саставу; радавы флоту. ‖ *прым.* **матро́скі**, -ая, -ае. *М. танец.*

**МАТРО́СКА**, -і, *ДМ* -ро́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** Форменная блуза матроса з вялікім адкладным каўняром спецыяльнага крою, а таксама жаночая або дзіцячая блуза такога ж крою. **2.** Тое, што і *бесказырка.*

**МАТРО́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Размаляваная драўляная лялька, у якую ўстаўляюцца такія ж лялькі меншага памеру.

**МА́ТРЫЦА**, -ы, *мн.* -ы, -рыц, *ж.* (спец.). **1.** Увагнутая частка друкарскай формы, у якой атрымліваюць шрыфты. *Свінцовая м. Пластмасавая м.* **2.** У матэматыцы: сістэма якіх-н. элементаў, размешчаных у выглядзе прамавугольнай табліцы. **3.** Узор, штамп, форма ў серыйнай вытворчасці аб'ектаў мастацтва і тэхнікі. ‖ *прым.* **ма́трычны**, -ая, -ае. *М. прэс. М. цэх.*

**МАТРЫЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак.* і *незак.*, *што* (спец.). Зрабіць (рабіць) матрыцу чаго-н. *М. набор.* ‖ *зак.* таксама **заматрыцава́ць**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны. ‖ *наз.* **матрыцава́нне**, -я, *н.*

**МАТРЫЯРХА́Т**, -у, *М* -ха́це, *м.* Перыяд у развіцці першабытнаабшчыннага ладу, на працягу якога жанчына адыгрывала кіруючую ролю ў гаспадарчым і грамадскім жыцці. ‖ *прым.* **матрыярха́льны**, -ая, -ае.

**МАТУ́З**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** Вяровачка, аборка, тасьма для завязак. **2.** часцей *мн.* Завязкі ў фартуху, шапцы-вушанцы і пад. ‖ *прым.* **мату́зны**, -ая, -ае.

**МАТУ́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, -ту́ль, *ж.* Тое, што і *мама.* ‖ *прым.* **мату́лін**, -а. ‖ *ласк.* **мату́лька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* (разм.); *прым.* **мату́льчын**, -а (разм.).

**МА́ТУХНА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што і *маці* (у 1 знач.). **2.** Ласкавы зварот да старой жанчыны. **3.** Тое, што і *матка* (у 4 знач.). *М.-зямля.*

**МА́ТУШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Жонка святара, пападдзя.

**МАТЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартыўнае спаборніцтва ў гульні паміж двума праціўнікамі або дзвюма камандамі. *Футбольны м. М.-рэванш.* ‖ *прым.* **ма́тчавы**, -ая, -ае.

**МАТЧ-ТУРНІ́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартыўнае спаборніцтва, у якім усе ўдзельнікі сустракаюцца паміж сабой не менш за два разы.

**МА́ТЧЫН**, -а. **1.** Які належыць матцы. *Матчына хата. Матчыны вочы ў сэрца глядзяць* (прыказка). **2.** Уласцівы матцы (у 1 знач.). *Матчына ласка.* **3.** Такі, як у маткі (у 1 знач.). *У Алесі матчыны вочы.* **4.** Родны; народны. *Матчына мова.*

**МАТЫВАВА́НЫ**, -ая, -ае. Які мае матывіроўку; абгрунтаваны. *Матываванае рашэнне.* ‖ *наз.* **матывава́насць**, -і, *ж.*

**МАТЫВАВА́ЦЬ**, -тыву́ю, -тыву́еш, -тыву́е; -тыву́й; -тывава́ны; *зак.* і *незак.*, *што.* Прывесці (прыводзіць) матывы, довады ў карысць чаго-н. *М. свой адказ.* ‖ *наз.* **матыва́цыя**, -і, *ж.*, **матывава́нне**, -я, *н.* і **матывіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**МАТЫВА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* матываваць. **2.** Сістэма довадаў, аргументаў на карысць чаго-н. ‖ *прым.* **матывацы́йны**, -ая, -ае.

**МАТЫВІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* **1.** *гл.* матываваць. **2.** Тое, што і *матывацыя* (у 2 знач.). ‖ *прым.* **матыві́ро́вачны**, -ая, -ае.

**МАТЫ́КА**, -і, *ДМ* -ты́цы, *мн.* -і, -ты́к, *ж.* Ручная землякопная прылада для рыхлення глебы, акучвання раслін. ‖ *прым.* **маты́чны**, -ая, -ае. *Матычнае земляробства.*

**МАТЫЛЁК**, -льќа, *мн.* -льќі, -льќоў, *м.* Насякомае з дзвюма парамі крылаў, пакрытых рознакаляровым пылком. *Капусны м.* ‖ *прым.* **матыльќовы**, -ая, -ае. *Сямейства матыльковых* (наз.).

**МАТЫЛІ́ЦА**, -ы, *ж.* **1.** *мн.* -ы, -лі́ц. Тое, што і *матылёк.* **2.** Хвароба хатняй жывёлы, часцей авечак, коз, выкліканая лічынкамі стужачных глістоў.

**МАТЫ́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* **1.** Тое, што і *матылёк.* **2.** Лічынка камара, якая служыць прынадай пры лоўлі рыбы, а таксама кормам для акварыумных рыб. ◊ **Матылі ў вачах** (разм.) — пра мігценне перад вачамі, калі становіцца млосна, дрэнна.

**МАТЫ́Ў**[1], -ты́ву, *мн.* -ты́вы, -ты́ваў, *м.* Прычына, падстава для якога-н. дзеяння. *Ён кіраваўся асабістымі матывамі.*

**МАТЫ́Ў**[2], -ты́ву, *мн.* -ты́вы, -ты́ваў, *м.* **1.** Прасцейшая састаўная частка сюжэта, тэма ў творах мастацтва. **2.** Мелодыя, напеў. *Вясёлы м.* ‖ *прым.* **маты́ўны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.).

**МАТЫ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.*, *што.* Апрацоўваць, рыхліць зямлю матыкай. ‖ *наз.* **маты́чанне**, -я, *н.*

**МАТЭ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Гасцініца для аўтатурыстаў. ‖ *прым.* **матэ́льны**, -ая, -ае.

**МАТЭМАТЫЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Укараненне матэматычных метадаў у іншыя навукі, сферы дзейнасці. *М. прыродазнаўчых навук.*

**МАТЭМА́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне матэматыкі. ‖ *ж.* **матэма́тычка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (разм.).

**МАТЭМА́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Навука, якая вывучае колькасныя адносіны, а таксама прасторавыя формы навакольнага свету. *Вышэйшая м.* ‖ *прым.* **матэматы́чны**, -ая, -ае. *Матэматычная задача.*

**МАТЭ́РЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Аб'ектыўная рэальнасць, якая існуе па-за чалавечай свядомасцю і незалежна ад яе. *Формы існавання матэрыі.* **2.** Рэчыва, з якога складаюцца фізічныя целы прыроды. *Будова матэрыі.* **3.** Тканіна, матэрыял (у 4 знач.; разм.). **4.** *перан.* Прадмет размовы, тэма. *Гутарыць аб высокай матэрыі.*

**МАТЭРЫЯ́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прадметы, рэчывы, з якіх будуецца, вырабляецца што-н.; сыравіна. *Будаўнічы м.* **2.** *перан.* Розныя звесткі, крыніцы, якія служаць асновай для чаго-н. *М. для назірання. Гістарычны м.* **3.** звычайна *мн.* Збор звестак, дакументаў па якім-н. пытанні. *Матэрыялы з'езда.* **4.** Тканы або трыкатажны выраб, прызначаны для шытва. *М. на сукенку.* ‖ *прым.* **матэрыя́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**МАТЭРЫЯЛАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Навука аб матэрыялах (у 1 знач.) якой-н. галіны вытворчасці. ‖ *прым.* **матэрыялазна́ўчы**, -ая, -ае.

**МАТЭРЫЯЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак.*, *што.* Увасобіць (увасабляць) у канкрэтныя, рэчыўныя формы. ‖ *звар.* **матэрыялізава́цца**, -зу́юся, -зу́ешся, -зу́ецца; -зу́йся. ‖ *наз.* **матэрыяліза́цыя**, -і, *ж.*

**МАТЭРЫЯЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Навуковы філасофскі кірунак, які ў супрацьлегласць ідэалізму прызнае першаснасць матэрыі і другаснасць духоўнага, ідэальнага. ‖ *прым.* **матэрыяліcты́чны**, -ая, -ае. *Матэрыялістычная філасофія. Матэрыялістычнае разуменне з'яў прыроды.*

**МАТЭРЫЯЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Паслядоўнік матэрыялізму. **2.** Чалавек, вельмі практычны па сваіх інтарэсах, які падыходзіць да ўсяго з пункту гледжання матэрыяльных выгад для сябе (разм.). ‖ *ж.* **матэрыялі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **матэрыялі́сцкі**, -ая, -ае.

**МАТЭРЫЯЛІСТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* матэрыялізм. **2.** Вузка практычны, які адносіцца да рэчаіснасці з пункту гледжання сваёй выгады. ‖ *наз.* **матэрыялісты́чнасць**, -і, *ж.*

**МАТЭРЫЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* матэрыял. **2.** Рэчыўны, рэальны ў супрацьлегласць духоўнаму. *М. свет.* **3.** Які адносіцца да ўзроўню жыцця, даходу, заробку. *Матэрыяльнае становішча.* ‖ *наз.* **матэрыя́льнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**МАЎЗАЛЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Вялікае надмагільнае мемарыяльнае збудаванне. *М. Леніна.* ‖ *прым.* **маўзале́йны**, -ая, -ае.

**МА́ЎЗЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Род аўтаматычнага пісталета.

**МАЎКЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не любіць многа гаварыць; немнагаслоўны. *М. чалавек.* **2.** Зразумелы без слоў. *Маўклівая згода.* ‖ *наз.* **маўклі́васць**, -і, *ж.*

**МАЎЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* Вуснае і пісьмовае валоданне мовай; моўная дзейнасць. *Невыразнае м.* ‖ *прым.* **маўле́нчы**, -ая, -ае. *М. апарат.*

**МАЎЛЯ́Ў**, *часц.* (разм.). Паказвае, што асоба, якая гаворыць, перадае чужыя словы. *Сказаў, што заняты, прыходзь, м., заўтра. Дзед ганарыўся галубамі: м., ні ў кога няма такіх разумных птахаў.*

**МА́ЎРЫ**, -аў, *адз.* маўр, -а, *м.* **1.** Назва карэннага насельніцтва Маўрытаніі. **2.** Назва мусульманскага насельніцтва Пірэнейскага паўвострава і заходняй часткі Паўночнай Афрыкі ў сярэдневяковай Еўропе (уст.). ‖ *ж.* **маўрыта́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **ма́ўрскі**, -ая, -ае *і* **маўрыта́нскі**, -ая, -ае.

**МАЎЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Манах, які даў зарок маўчання. **2.** Пра маўклівага чалавека, а таксама пра чалавека, які з меркаванняў асцярогі не выказвае сваёй думкі, адмоўчваецца. ‖ *ж.* **маўча́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**МАЎЧА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.). Дзіцячая гульня, у якой прайграе той, хто першым загаворыць. ◊ **Гуляць у маўчанку** — ухіляцца ад размовы.

**МАЎЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *незак.* **1.** Нічога не гаварыць, не падаваць голасу. *Слухай і маўчы.* **2.** *перан.* Не парушаць цішыні, спакою. *Вёска маўчыць.* **3.** *аб чым.* Захоўваць што-н. у тайне, не расказваць пра што-н. *Аб гэтай справе лепш м.* ‖ *наз.* **маўча́нне**, -я, *н.*

**МАЎЧКО́М**, *прысл.* Нічога не кажучы, захоўваючы маўчанне. *Сядзець м.*

**МАЎЧО́К**, -чка́, *м.* **1.** Маўчанне. **2.** *у знач. вык.* Ні слова, ні гуку (не гаварыць; разм.). *Толькі пра гэта м.!*

**МАЎЧУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Маўклівы, негаваркі чалавек. ‖ *ж.* **маўчу́ха**, -і, *ДМ* -чу́се, *мн.* -і, -чу́х.

**МАФІЁЗІ**, *нескл., м.* Член мафіі.

**МА́ФІЯ**, -і, *мн.* -і, -фій, *ж.* Тайная крымінальная арганізацыя, сфарміраваная ў Італіі, якая пазней распаўсюдзіла сваю дзейнасць і ў іншых краінах.

**МАХ**[1], -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Адзін хуткі рух у паветры чым-н., узмах. *М. крыла. М. рукі.* **2.** У спорце: адзін рух нагой, рукой або корпусам уперад, назад або ўбок. *М. уперад.* ◊ **Адным махам, за адным махам** (разм.) — адразу, за адзін прыём. **Даць маху** (разм.) — дапусціць памылку. **З усяго маху** (разм.) — размахнуўшыся, з усяе сілы.

**МАХ**[2], *выкл., у знач. вык.* (разм.). Ужыв. для абазначэння хуткага руху (ад дзеяслова махнуць — махаць).

**МАХАВІ́К**[1], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Кола, якое забяспечвае раўнамерны рух механізма.

**МАХАВІ́К**[2], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Ядомы грыб на тонкай ножцы з жоўта-бурай шапкай.

**МАХАВЫ́**[1], -а́я, -о́е. Які мае адносіны да махання, прызначаны для яго. *Махавыя пёры.*

**МАХАВЫ́**[2] *гл.* мох.

**МА́ХАЛА**, -а, *н.* У выразах: **махалам не адмахацца** (разм.) — ніякімі сіламі не прымусіць адчапіцца; **хоць ты махалам махай** (разм.) — занадта многа каго-н., не адбіцца.

**МАХА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Асоба, якая падае сігналы маханнем.

**МАХАО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйны дзённы матылёк з жоўтымі крыламі ў чорныя крапінкі. ‖ *прым.* **махао́навы**, -ая, -ае.

**МАХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *чым.* Рабіць узмахі, рухі ў паветры. *М. рукой каму-н.* **2.** *чым.* Трэсці чым-н., пагражаючы каму-н. *М. кулаком.* **3.** Хутка ісці, рухацца, шпарыць (разм.). *Прыйшлося м. пяць кіламетраў па дажджы.* ‖ *аднакр.* **махну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ ‖ *наз.* **маха́нне**, -я, *н.*

**МАХЕ́Р**, -у, *м.* Шэрсць коз ангорскай пароды або выраб з гэтай шэрсці. ‖ *прым.* **махе́равы**, -ая, -ае. *М. шалік.*

**МАХІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -хі́н, *ж.* (разм.). Вялікі, груваcткі прадмет.

**МАХІНА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца махінацыямі; махляр. ‖ *ж.* **махіна́тарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **махіна́тарскі**, -ая, -ае.

**МАХІНА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Несумленны спосаб дасягнення чаго-н.; махлярства.

**МАХЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; *незак.* (разм.). Займацца махлярствам; жульнічаць, ашукваць. ‖ *зак.* **змахлява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й. ‖ *наз.* **махлява́нне**, -я, *н.*

**МАХЛЯ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Той, хто займаецца махлярствам, махлюе; жулік, ашуканец. ‖ *ж.* **махля́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **махля́рскі**, -ая, -ае. *Махлярскія звычкі.*

**МАХЛЯ́РСТВА**, -а, *н.* (разм.). Падман, ашуканства з карыслівай мэтай.

**МАХНА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Аброслы поўсцю, валасамі; касматы. *М. звер.* **2.** Пра тканіну: з густым ворсам. *М. ручнік.* **3.** *перан.* З густой ігліцай, з густымі галінамі. *Махнатыя лапы ялін.* ‖ *наз.* **махна́тасць**, -і, *ж.*

**МАХНА́ЦІЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ціцца; *незак.* (разм.). Рабіцца махнатым, калмаціцца. *Сукно пачало м.*

**МАХНА́ЦІЦЬ**, -на́чу, -на́ціш, -на́ціць; *незак., што* (разм.). Рабіць махнатым, калмаціць.

**МАХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** *гл.* махаць. **2.** Кінуцца куды-н. (разм.). *М. цераз плот.* **3.** Адправіцца, паехаць куды-н. (разм.). *М. на поўдзень.* ◊ **Махнуць рукой** *на каго-што* (разм.) — перастаць звяртаць увагу на каго-, што-н.

**МАХО́Р** *гл.* махры.

**МАХО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* **1.** Травяністая расліна сямейства паслёнавых, з лісця і сцябла якой атрымліваюць тытунь. **2.** Тытунь ніжэйшага гатунку з такой расліны. ‖ *прым.* **махо́рачны**, -ая, -ае.

**МАХРА́**, -ы́, *ж.* (разм.). Тое, што і *махорка* (у 2 знач.).

**МАХРАВА́ТЫ**, -ая, -ае. З невялікімі махрамі. ‖ *наз.* **махрава́тасць**, -і, *ж.*

**МАХРА́СТЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *махрысты.*

**МАХРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Пра кветку з вялікай колькасцю пялёсткаў. *М. мак.* **2.** Пра тканіны, вырабы з тканіны з высокім ворсам. *М. халат.* **3.** *перан.* Ярка выражаны з боку якой-н. адмоўнай якасці. *М. рэакцыянер.* ‖ *наз.* **махро́васць**, -і, *ж.*

**МАХРЫ́**, -о́ў, *адз.* махо́р, -хра́, *м.* **1.** Свабодна звісаючыя ніткі, шнуркі па краях якой-н. тканіны. *Хустка з махрамі.* **2.** Пялёсткі ў махровых кветках. **3.** Тонкія адгалінаванні кораня расліны.

**МАХРЫ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** З махрамі. **2.** Падобны на шматкі, касмылі па краях чаго-н. ‖ *наз.* **махры́стасць**, -і, *ж.*

**МАЦ**, *выкл., у знач. вык.* (разм.). Ужыв. са знач. дзеяслова мацаць. *М. у кішэнь, а кашалька як не было.*

**МАЦА́**, -ы́, *ж.* Тонкія сухія праснакі з пшанічнай мукі, якія выпякаюцца паводле яўрэйскага абраду да Вялікадня.

**МАЦАВА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Горнарабочы, спецыяліст па крапяжы. *Шахцёр-мацавальшчык.*

**МАЦАВА́ЦЬ**, мацу́ю, мацу́еш, мацу́е; мацу́й; мацава́ны; *незак., што.* **1.** Трывала прымацоўваць. *М. трос.* **2.** *перан.* Рабіць моцным, узмацняць. *М. абарону краіны.* **3.** У горнай справе: устанаўліваць крапеж. **4.** Правяраць моц чаго-н. (разм.). *М. яйка.* ‖ *наз.* **мацава́нне**, -я, *н.*

**МАЦА́К**, -а́ *і* -у́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** -а́. Здаровы, моцны чалавек. **2.** -у́. Моцны тытунь, напітак і інш.

**МА́ЦАЦЬ**, ма́цаю, ма́цаеш, ма́цае; *незак.* **1.** *што.* Датыкаючыся, распазнаваць што-н., упэўнівацца ў чым-н. *М. пульс.* **2.** *каго-што.* Шукаць вобмацкам. *М. ракаў.* ‖ *наз.* **ма́цанне**, -я, *н.*

**МА́ЦЕРКІ**, -рак *і* **МАЦЯРКІ́**, -ро́к (разм.). Тое, што і *маці* (у 1 знач.).

**МАЦЕРЫКО́ВЫ** *гл.* мацярык.

**МА́ЦЕРЫН** *гл.* маці.

**МАЦЁРЫ**, -ая, -ае. **1.** Сталы, поўны сіл (пра жывёлу). *М. воўк.* **2.** *перан.* Вопытны; непапраўны, закаранелы. *М. шпіён. М. бюракрат.* ‖ *наз.* **мацёрасць**, -і, *ж.*

**МА́ЦІ**, *РДМ* ма́ці *і* ма́церы, *В* ма́ці *і* ма́церу, *Т* ма́ці *і* ма́царай, *мн.* ма́ці *і* ма́церы, *Р* ма́ці *і* мацяро́й, *Д* ма́ці *і* мацяра́м, *Т* ма́ці *і* мацяра́мі, *М* ма́ці *і* мацяра́х, *ж.* **1.** Жанчына ў адносінах да сваіх дзяцей. *Родная м. М.-адзіночка.* **2.** Самка ў адносінах да яе дзяцей. ‖ *прым.* **мацяры́нскі**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **ма́церын**, -а (да 1 знач.; разм.). *Мацярынская любоў. Мацерына паліто.*

**МАЦНАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). Даволі моцны. *М. мароз. М. чай.*

**МАЦНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Рабіцца больш моцным, здаровым. *Мышцы мацнеюць.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Узнімацца, дзьмуць больш моцна. *Вецер мацнее.* **3.** *перан.* Станавіцца ўстойлівым. *М. духам.* **4.** Умацоўвацца экана-

мічна, арганізацыйна. *Год ад году мацнее гаспадарка.* **5.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Набірацца моцы ў працэсе прыгатавання (пра віно, чай і пад.). *Чай мацнее, калі завараны пастаіць.* ‖ *зак.* **памацнéць**, -éю, -éеш, -éе.

**МАЦЎНАК**, -нку, *м.* (разм.). **1.** Уласцівасць моцнага; моц, трываласць. *У віне дзесяць градусаў мацунку. Мароз набірае м. М. матэрыі.* **2.** Яда, якой можна падсілкавацца, падмацаваць сілы. *Жытні хлеб — здаровы м.*

**МАЦЫЁН**, -у, *м.* Прагулка з мэтай умацавання здароўя або адпачынку. *Вячэрні м.* ‖ *прым.* **мацыённы**, -ая, -ае.

**МАЦЮКÁЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* (разм.). Лаяцца матам². ‖ *наз.* **мацюкáнне**, -я, *н.*

**МАЦЮКÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак., каго-што* (разм.). Лаяць матам².

**МАЦЯРКÍ** *гл.* мацеркі.

**МАЦЯРЫ́К**, -церыкá, *мн.* -церыкí, -церыкóў, *м.* Вялікая частка сушы, якая абмываецца морамі і акіянамі; кантынент. ‖ *прым.* **мацерыкóвы**, -ая, -ае. *М. клімат.*

**МАЦЯРЫ́НСКІ** *гл.* маці.

**МАЦЯРЫ́НСТВА**, -а, *н.* **1.** Стан жанчыны-маці ў перыяд цяжарнасці, родаў і кармлення дзіцяці. *Ахова мацярынства.* **2.** Уласцівае маці пачуццё да дзяцей, усведамленне яе кроўнай сувязі з дзецьмі. *Пачуццё мацярынства.*

**МАЧÁ**, -ы́, *ж.* Вадкасць, што выдзяляецца ныркамі як прадукт абмену рэчываў. ‖ *прым.* **мачавы́**, -áя, -óе. *М. пузыр.*

**МАЧАГÓННЫ**, -ая, -ае. Які ўзмацняе выдзяленне мачы. *Мачагонныя сродкі.*

**МАЧÁЛА**, -ы, *мн.* -ы, -чáл *і* -аў, *ж.* Тонкія доўгія палоскі з лубянога слоя ліпавай кары, з якіх вырабляюць рагожу, вяроўкі і пад. ‖ *прым.* **мачáльны**, -ая, -ае.

**МАЧÁЛІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). Валакністы, падобны да мачалы.

**МАЧÁЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Жмут мачал або якіх-н. валокнаў для мыцця, змывання гразі і пад.; наогул мяккі выраб, прызначаны для мыцця чаго-н. ‖ *прым.* **мачáлкавы**, -ая, -ае.

**МАЧАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Страва з сала, мяса і каўбасы, падкалочаная мукой. *М. — нацыянальная страва беларусаў.*

**МАЧÁННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* мачаць. **2.** Тое, што і *мачанка.*

**МÁЧАХА**, -і, *ДМ* -часе, *мн.* -і, -чах *і* **МÁЧЫХА**, -і, *ДМ* -чысе, *мн.* -і, -чых, *ж.* Няродная маці, жонка бацькі ў адносінах да яго дзяцей ад папярэдняга шлюбу.

**МАЧÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак., што.* **1.** Апускаць у што-н. вадкае або сыпкае. *М. бульбу ў скваранае сала.* **2.** Выкабляць што-н. апусканнем у які-н. раствор (спец.). *М. запалкі.* ‖ *аднакр.* **макнýць**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ні́. ‖ *наз.* **мачáнне**, -я, *н.*

**МÁЧТА**, -ы, *ДМ* -чце, *мн.* -ы, мачт *і* -аў, *ж.* Высокі слуп для парусоў на судне, а таксама збудаванне ў выглядзе слупа для розных мэт. ‖ *прым.* **мáчтавы**, -ая, -ае. *М. лес. М. ліхтар.*

**МАЧТАВЫ́**, -óга, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.* Матрос, які нясе службу на мачце.

**МАЧТÓЎНІК**, -у, *м.* Лес, прыгодны для мачтаў. *М. знаходзіцца пад пільнай аховай.*

**МАЧЎЛІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *н.* (гіст.). Месца, дзе мочаць лён, каноплі і пад.

**МАЧЫ́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* Тое, што і *мачулішча.*

**МÁЧЫХА** *гл.* мачаха.

**МАЧЫ́ЦЦА**, мачýся, мóчышся, мóчыцца; *незак.* **1.** Рабіцца мокрым, прамакаць наскрозь. *З-за маленькага шчупачка нявар та было м.* **2.** Выдзяляць мачу. ‖ *зак.* **памачы́цца**, -мачýся, -мóчышся, -мóчыцца.

**МАЧЫ́ЦЬ**, мачý, мóчыш, мóчыць; мóчаны; *незак.* **1.** *каго-што.* Рабіць мокрым, вільготным. *Дождж мочыць збожжа.* **2.** *што.* Трымаць што-н. у чым-н. вадкім, прамочваць, насычаць вадкасцю, каб надаць адпаведныя якасці, уласцівасці. *М. лён.* ‖ *зак.* **замачы́ць**, -мачý, -мóчыш, -мóчыць; -мóчаны *і* **намачы́ць**, -мачý, -мóчыш, -мóчыць; -мóчаны; *наз.* **замóчванне**, -я, *н.* (да 2 знач.), **замóчка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* (да 2 знач.) *і* **мачэ́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **мачы́льны**, -ая, -ае.

**МАШАСТÓВЫ** *гл.* мошаст.

**МАШБЮРÓ**, *нескл., н.* (гіст.). Машынапіснае бюро.

**МАШКАРÁ**, -ы́, *ж., зб.* Мошкі. *Балотная м.*

**МАШНÁ**, -ы́, *мн.* -ы́, машóн, *ж.* **1.** Мяшочак для грошай (уст.). **2.** *перан.* Пра грошы, багацце (разм.). *Тугая м.*

**МАШÓНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Тое, што і *машна* (уст.). **2.** Скурнамышачны мяшочак, у якім знаходзяцца мужчынскія палавыя залозы. ‖ *прым.* **машóначны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**МАШТÁБ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адносіны даўжыні лініі на карце, глобусе, чарцяжы і пад. да даўжыні ў натуры. *М. — дваццаць пяць кіламетраў у адным сантыметры.* **2.** *перан.* Размах, значэнне. *Шырокі м. будаўнічых работ. У сусветным маштабе.* ‖ *прым.* **маштáбны**, -ая, -ае.

**МАШТÁБНАСЦЬ**, -і, *ж.* Вялікі размах, глыбіня ахопу чаго-н. *М. падзей.*

**МАШТÁК**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Невялікі моцны конь.

**МАШЧЭ́ННЕ** *гл.* масціць.

**МАШЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -шын, *ж.* **1.** Механізм або сукупнасць механізмаў, што выконваюць пэўную работу, ператвараючы адзін від энергіі ў другі. *Паравая м. Вязальная м.* **2.** *перан.* Аб арганізацыі, асобе, якая дзейнічае падобна механізму беспербойна і дакладна; сістэма. *Ваенная м.* **3.** Тое, што і *аўтамабіль. Легкавая м.* ‖ *прым.* **машы́нны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.). *М. парк. М. пераклад.*

**МАШЫНА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. машына, машынны, напр.: *машыназабеспячэнне, машынапракатны, машынаўладальнік.*

**МАШЫНАБУДАВÁННЕ**, -я, *н.* Галіна прамысловасці, якая вырабляе машыны (у 1 знач.). ‖ *прым.* **машынабудаўні́чы**, -ая, -ае. *М. завод.*

**МАШЫНАБУДАЎНÍК**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Спецыяліст па машынабудаванні.

**МАШЫНАЗНÁЎСТВА**, -а, *н.* Навуковая дысцыпліна, якая ўключае апісанне і тэорыю машын і механізмаў, тэхналогію машынабудавання. ‖ *прым.* **машыназнáўчы**, -ая, -ае.

**МАШЫНÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. Механічны, аўтаматычны. *М. адказ.* ‖ *наз.* **машынáльнасць**, -і, *ж.*

**МАШЫ́НАПІС**, -у, *м.* Друкаванне на пішучай машынцы, а таксама сам тэкст, атрыманы ў выніку друкавання. ‖ *прым.* **машынапíсны**, -ая, -ае. *М. тэкст.*

**МАШЫНІЗАВÁЦЬ**, -зýю, -зýеш, -зýе; -зýй; -заваны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Укараніць (укараняць) машыны ў вытворчасць. ‖ *наз.* **машынізáцыя**, -і, *ж.*

**МАШЫНÍСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст, які працуе на машыне і кіруе ходам машыны. *М. паравоза. М. экскаватара.*

**МАШЫНÍСТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Жанчына, якая працуе на пішучай машынцы.

**МАШЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Механічная прылада для якой-н. работы. *Пішучая м. Шыць на машынцы. М. для стрыжкі валасоў.*

**МАЭ́СТРА**, *нескл., м.* Ганаровая назва выдатных музыкантаў, жывапісцаў, шахматыстаў.

**МАЯ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Вежа з сігнальнымі агнямі на беразе мора або вострава, якія паказваюць шлях караблям. ‖ *прым.* **мая́чны**, -ая, -ае.

**МАЯНТКÓВЫ** *гл.* маёнтак.

**МАЯНЭ́З**, -у, *м.* Соус з алею, яечнага жаўтка, воцату, гарчыцы і іншых прыправаў. ‖ *прым.* **маянэ́зны**, -ая, -ае.

**МАЯРÁТ**, -у, *М* -рáце, *м.* (гіст.). **1.** Парадак атрымання спадчыны, пры якім зямельнае ўладанне пераходзіць старэйшаму сыну або старэйшаму ў родзе. **2.** Нерухомая маёмасць, на якую пашырана такое права. ‖ *прым.* **маярáтны**, -ая, -ае.

**МÁЯТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Стрыжань або ланцуг з цяжарам на ніжнім канцы, які мерна вагаецца з боку ў бок у падвешаным стане. *Насценны гадзіннік з маятнікам.* **2.** Рухомае кольца ў ручным ці кішэнным гадзінніку, якое рэгулюе ход. ‖ *прым.* **мáятнікавы**, -ая, -ае.

**МАЯ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* (разм.). Узвышацца над наваколлем. *Заводскія трубы маячылі ўдалечыні.*

**МЕГА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) у мільён разоў больш за адзінку, указаную ў другой частцы слова, напр.: *мегават, мегагерц, мегаграм,*

*мегатона;* 2) вялікі, гіганцкі, грандыёзны, напр.: *мегаліт, мегаспора, мегаполіс.*

**МЕГАФО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рупар для ўзмацнення гуку. *Гаварыць у м.* ‖ *прым.* **мегафо́нны**, -ая, -ае.

**МЕД...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. медыцынскі, напр.: *медагляд, медбрат, меддапамога, медслужба.*

**МЕДАВА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст, які займаецца мёдаварэннем.

**МЕДАВА́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* Памяшканне са спецыяльным абсталяваннем для варэння мёду (у 2 знач.). ‖ *прым.* **медава́рны**, -ая, -ае.

**МЕДАВУ́ХА**, -і, *ДМ* -ву́се, *ж.* (разм.). Лёгкі хмельны напітак з мёду.

**МЕДАГО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Машына для адпампоўвання мёду з сотаў.

**МЕДАЗБО́Р**, -у, *м.* **1.** Збор пчоламі нектару з кветак і час такога збору. **2.** Мёд, сабраны пчоламі. *Багаты м.* ‖ *прым.* **медазбо́рны**, -ая, -ае.

**МЕДАЛІ́СТ**, -а, *М* -лісце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто атрымаў медаль у якасці ўзнагароды за што-н. ‖ *ж.* **медалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **медалі́сцкі**, -ая, -ае.

**МЕДА́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Знак у выглядзе круглай металічнай пласцінкі з якім-н. рэльефным адбіткам і надпісам, што выдаецца як узнагарода або ў памяць аб якой-н. падзеі. *М. Францыска Скарыны. Залаты м. Памятны м.* ◊ **Адваротны бок медаля** — адмоўны бок якой-н. справы. ‖ *прым.* **меда́льны**, -ая, -ае.

**МЕДАЛЬЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак, які вырабляе формы для адліўкі і чаканкі манет і медалёў. ‖ *прым.* **медалье́рскі**, -ая, -ае.

**МЕДАЛЬЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да працы медальера. *Медальернае мастацтва.*

**МЕДАЛЬЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ювелірны выраб авальнай ці круглай формы ў выглядзе футлярчыка, унутр якога можна ўстаўляць фотаздымак або які-н. talісман. ‖ *прым.* **медальённы**, -ая, -ае.

**МЕДАНО́С**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а, *мн.* -ы, -аў. Меданосная расліна. **2.** -у. Збор пчоламі нектару з кветак, а таксама час такога збору.

**МЕДАНО́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Багаты нектарам. *Меданосныя кветкі.* **2.** Які перапрацоўвае нектар у мёд. *Меданосныя пчолы.* ‖ *наз.* **медано́снасць**, -і, *ж.*

**МЕДЗВЕДЗЯНЯ́** *і* **МЕДЗВЕДЗЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня мядзведзя.

**МЕДЗЕПЛАВІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да выплаўкі медзі. *М. завод.*

**МЕДЗЬ**, -і, *ж.* **1.** Хімічны элемент, метал чырванавата-жоўтага колеру, вязкі і коўкі. *Плаўленая м.* **2.** *зб.* Вырабы з такога металу. **3.** *зб.* Грошы з такога металу (разм.). *Рэшту атрымаў меддзю.* ‖ *прым.* **ме́дны**, -ая, -ае *і* **медзяны́**, -а́я, -о́е (разм.).

**МЕДЗЯКІ́**, -о́ў, *адз.* мядзя́к, медзяка́, *м.* Медныя манеты, грошы. *Атрымаў цэлую жменю медзякоў.*

**МЕДЗЯНІ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** У склад якога ўваходзіць медзь. *Медзяністая сажа.* **2.** Падобны колерам на медзь. *М. колер.*

**МЕДЗЯНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* Сысучае насякомае атрада раўнакрылых хобатных, шкоднік яблыневых і грушавых дрэў.

**МЕДНА...** *і* **МЕДНА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. медны (у 1, 2 і 4 знач.), напр.: *меднапракатны, меднарудны, медна-бронзавы, медна-буры, медна-жоўты, медна-чырвоны.*

**МЕДНАЛІЦЦЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да ліцця медзі. *М. цэх.*

**МЕ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па вырабе і рамонце медных рэчаў. ‖ *прым.* **ме́дніцкі**, -ая, -ае.

**МЕ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* медзь. **2.** Які мае адносіны да здабычы і апрацоўкі медзі. *Медная прамысловасць.* **3.** Зроблены з медзі. *Медныя грошы.* **4.** Колеру медзі, чырвона-жоўты. *М. твар ад прыморскага загару.* ○ **Медны век** — пераходны перыяд ад неаліту да бронзавага веку, калі пачынаюць з'яўляцца металічныя вырабы з медзі. ◊ **Медны лоб** (разм., пагард.) — пра ўпартага, бесталковага чалавека.

**МЕДПЕРСАНА́Л**, -у, *м.* Медыцынскі персанал.

**МЕДПУ́НКТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Медыцынскі пункт; амбулаторная лячэбніца пры якой-н. установе, прадпрыемстве. *М. на заводзе.*

**МЕДСАНБА́Т**, -а, *М* -ба́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Медыка-санітарны батальён. ‖ *прым.* **медсанба́таўскі**, -ая, -ае.

**МЕДСАНБА́ТАВЕЦ**, -таўца, *мн.* -таўцы, -таўцаў, *м.* Супрацоўнік медсанбата. ‖ *ж.* **медсанба́таўка**, -і, *ДМ* -таўцы, *мн.* -і, -тавак (разм.).

**МЕДСЯСТРА́**, -ы́, *мн.* -сёстры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) -сястры́, -сясцёр, *ж.* Медыцынская сястра, асоба сярэдняга медыцынскага персаналу ў лячэбных установах.

**МЕДУ́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -ду́з, *ж.* Беспазваночная марская жывёліна са студзяністым целам і шчупальцамі.

**МЕДУНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* Травяністая расліна сямейства бурачнікавых з дробнымі пахучымі кветкамі.

**МЕ́ДЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач, а таксама студэнт вышэйшай медыцынскай навучальнай установы. ‖ *ж.* **меды́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (разм.).

**МЕДЫКА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. медыцынскі, напр.: *медыка-інструментальны, медыка-прафілактычны, медыка-санітарны, медыка-фармацэўтычны, медыка-хірургічны.*

**МЕДЫКАМЕ́НТЫ**, -аў, *адз.* медыкаме́нт, -а, *М* -нце, *м.* Лячэбныя сродкі, лякарствы. ‖ *прым.* **медыкаменто́зны**, -ая, -ае.

**МЕ́ДЫЯ**, *нескл.*, *мн.* Сродкі масавай інфармацыі. *Беларускія м.*

**МЕДЫЯ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -дыя́н, *ж.* У геаметрыі: адрэзак прамой лініі, які злучае вяршыню трохвугольніка з сярэдзінай процілеглай стараны.

**МЕЖАВА́ЦЬ**, мяжу́ю, мяжу́еш, мяжу́е; мяжу́й; межава́ны; *незак.* **1.** Мець агульную мяжу, быць сумежным (разм.). **2.** *што.* Вызначаць межы ўчасткаў пры падзеле зямлі. *М. палі.* ‖ *наз.* **межава́нне**, -я, *н.*

**МЕЖАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Спецыяліст па межаванні; землямер.

**МЕЖАВЫ́** *гл.* мяжа.

**МЕ́ЖАНЬ**, -і, *ж.* Перыяд з найбольш нізкім устойлівым узроўнем вады ў рацэ. *Зімовая м.* ‖ *прым.* **ме́жанны**, -ая, -ае. *М. перыяд.*

**МЕЗАЗО́ЙСКІ**, -ая, -ае. У выразе: **мезазойская эра** (спец.) — эра геалагічнай гісторыі Зямлі, якая ідзе за палеазойскай і папярэднічае кайназойскай эры.

**МЕЗАНІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Надбудова над сярэдняй часткай невялікага жылога дома. ‖ *прым.* **мезані́нны**, -ая, -ае.

**МЕ́ЗЕНЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Пяты, самы малы палец на руцэ і на назе. ‖ *памянш.* **ме́зенчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**МЕЛ**, -у, *м.* Тое, што і *крэйда. Пісаць мелам на дошцы. Белы, як м.* ‖ *прым.* **мелавы́**, -а́я, -о́е. *М. перыяд* (трэці геалагічны перыяд мезазойскай эры).

**МЕЛАВА́НЫ**, -ая, -ае. У выразе: **мелаваная папера** — папера, пакрытая белай клеенай фарбай.

**МЕЛАДРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́м, *ж.* **1.** Драма з вострай інтрыгай, рэзкім проціпастаўленнем дабра і зла, перабольшанай эмацыянальнасцю. **2.** *перан.* Падзея, паводзіны, афарбаваныя перабольшаным драматызмам (неадабр.). ‖ *прым.* **меладрамаы́чны**, -ая, -ае.

**МЕЛАДЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* мелодыя. **2.** Прыемны для слыху, мілагучны. *М. голас.* ‖ *наз.* **мелады́чнасць**, -і, *ж.*

**МЕЛАДЭКЛАМА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Артыст, які займаецца меладэкламацыяй. ‖ *прым.* **меладэклама́тарскі**, -ая, -ае.

**МЕЛАДЭКЛАМА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Дэкламацыя вершаў або прозы, якая суправаджаецца музыкай. ‖ *прым.* **меладэкламацы́йны**, -ая, -ае.

**МЕЛАМА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто вельмі любіць музыку і спевы. ‖ *ж.* **мелама́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **мелама́нскі**, -ая, -ае.

**МЕЛА́НЖ**, -у, *м.* (спец.). Пража або тканіна з сумесі афарбаваных у розныя колеры валокнаў, валакністых матэрыялаў. ‖ *прым.* **мела́нжавы**, -ая, -ае. *М. камбінат.*

**МЕЛАНХАЛІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* меланхолія. **2.** Схільны да меланхоліі, які выражае меланхолію. *М. характар.* **3.** Пра тэмперамент: які характарызуецца прыгнечаным станам, слабымі валявымі працэсамі. ‖ *наз.* **меланхалі́чнасць**, -і, *ж.*

**МЕЛАНХО́ЛІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, хворы на меланхолію, схільны да суму, нуды. **2.** Чалавек з меланхалічным тэмпераментам. ‖ *ж.* **меланхалі́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**МЕЛАНХО́ЛІЯ**, -і, *ж.* Хваравіта-прыгнечаны стан, туга, хандра. ‖ *прым.* **меланхалі́чны**, -ая, -ае. *М. настрой.*

**МЕ́ЛАС**, -у, *м.* (спец.). Агульнае паняцце меладычнага, песеннага пачатку ў музыцы.

**МЕЛІ́СА**, -ы, *ж.* Травяністая меданосная расліна сямейства губакветных з жоўтымі кветкамі і лімонным пахам.

**МЕ́ЛІСТЫ**, -ая, -ае. Які мае мелі. *Мелістая затока.*

**МЕЛІЯРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што.* Правесці (праводзіць) меліярацыю. *М. забалочаныя землі.*

**МЕЛІЯРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па меліярацыі. ‖ *прым.* **меліяра́тарскі**, -ая, -ае.

**МЕЛІЯРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне зямель шляхам асушэння або арашэння. ‖ *прым.* **меліярацы́йны**, -ая, -ае.

**МЕ́ЛКА**, *прысл.* **1.** Неглыбока. **2.** *у знач. вык.* Пра нязначную глыбіню. *Тут зусім м.*

**МЕЛКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. мелкі, напр.: *мелкаводны, мелкадонны.*

**МЕЛКАВО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Нізкі ўзровень вады ў рацэ, возеры і пад. **2.** Участак ракі, возера з невялікай глыбінёй.

**МЕЛКАВО́ДНЫ**, -ая, -ае. Неглыбокі, з нізкім узроўнем вады (пра вадаёмы). *М. канал.* ‖ *наз.* **мелкаво́днасць**, -і, *ж.*

**МЕ́ЛКІ**, -ая, -ае. **1.** Які мае невялікую глыбіню. *Мелкае возера. Мелкае свідраванне.* **2.** З нізкімі краямі, з меншай глыбінёй у параўнанні з іншымі аднароднымі прадметамі. *Мелкая талерка.* ‖ *наз.* **ме́лкасць**, -і, *ж.*

**МЕЛО́ДЫКА**, -і, *ДМ* -дыцы, *ж.* **1.** Вучэнне аб мелодыі. **2.** Сукупнасць меладычных сродкаў, уласцівых асобнаму музычнаму твору, жанру, кампазіцыі і пад. *М. верша.*

**МЕЛО́ДЫЯ**, -і, *мн.* -і, -дый, *ж.* Мілагучная паслядоўнасць гукаў, якая ўтварае музычнае адзінства; напеў. ‖ *прым.* **мелады́чны**, -ая, -ае.

**МЕЛЬ**, -і, *Т* ме́ллю, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Неглыбокае месца ў рацэ або моры, небяспечнае для суднаходства. ◊ **Сесці на мель** — трапіць у нязручнае, цяжкае становішча.

**МЕ́ЛЬКАМ**, *прысл.* Імгненна, нядоўга, бегла. *М. зірнуць.*

**МЕ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *млынар.* ‖ *прым.* **ме́льніцкі**, -ая, -ае.

**МЕ́ЛЬНІЧЫХА**, -і, *ДМ* -чысе, *мн.* -і, -чых, *ж.* (разм.). Жонка мельніка.

**МЕЛЬХІЁР**, -у, *м.* Сплаў медзі з нікелем і некаторымі іншымі элементамі серабрыста-белага колеру. ‖ *прым.* **мельхіёравы**, -ая, -ае.

**МЕМАРА́НДУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (афіц.). Дыпламатычны дакумент, у якім выказваюцца погляды ўрада дадзенай дзяржавы па якім-н. пытанні і які ўручаецца прадстаўніку іншай дзяржавы.

**МЕМАРЫЯ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Манументальнае скульптурнае збудаванне-помнік на месцы якой-н. падзеі. **2.** Спартыўнае спаборніцтва, прысвечанае памяці выдатнага спартсмена.

**МЕМАРЫЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для ўвекавечання памяці якой-н. асобы або падзеі. *М. комплекс «Хатынь».*

**МЕМБРА́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́н, *ж.* Пруткая перапонка, тонкая металічная пласцінка, здольная вагацца. *М. тэлефона.* ‖ *прым.* **мембра́нны**, -ая, -ае *і* **мембра́навы**, -ая, -ае.

**МЕМУА́РЫ**, -аў. Нататкі аб мінулых падзеях, зробленыя сведкамі або ўдзельнікамі тых падзей. ‖ *прым.* **мемуа́рны**, -ая, -ае.

**МЕМУАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтар мемуараў. ‖ *ж.* **мемуары́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **мемуары́сцкі**, -ая, -ае.

**МЕ́НА** *гл.* мяняцца, мяняць.

**МЕНАВІ́ТА**, *часц.* **1.** Ужыв. для падкрэслівання, узмацнення якога-н. члена сказа ў знач. якраз так. *Ён сказаў м. так.* **2.** *у складзе злуч.* Ужыв. перад пералічэннем каго-, чаго-н. *З'явіліся ўсе, а м.: Алесь, Рыгор і Хведар.*

**МЕНАВЫ́**, -а́я, -о́е. Заснаваны на абмене. *М. гандаль. Менавая вартасць.*

**МЕ́НЕДЖАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па кіраванні працэсамі ў розных сферах чалавечай дзейнасці, арганізацыі дзейнасці банкаў, кампаній, фінансавых устаноў і пад. *Падрыхтоўка менеджараў.*

**МЕ́НЕДЖМЕНТ**, -у, *М* -нце, *м.* (спец.). Мастацтва кіравання інтэлектуальнымі, фінансавымі, матэрыяльнымі рэсурсамі.

**МЕ́НЕЙ**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *менш.*

**МЕНЗУ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Шкляная пасудзіна з дзяленнямі для дакладнага адмервання вадкасці. ‖ *прым.* **мензу́рачны**, -ая, -ае.

**МЕНІНГІ́Т**, -у, *М* -гіце, *м.* Запаленне абалонкі галаўнога мозга. ‖ *прым.* **менінгі́тны**, -ая, -ае.

**МЕНСТРУА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -ый, *ж.* Штомесячны матачны крывацёк у жанчыны, якая дасягнула палавой спеласці. ‖ *прым.* **менструа́льны**, -ая, -ае.

**МЕНТАЛІТЭ́Т**, -у, *М* -тэ́це, *м.* Вобраз мыслення, светаўспрымання, уласцівы асобе, групе людзей ці этнасу. *Нацыянальны м. М. беларусаў.*

**МЕ́НТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Настаўнік, выхавацель. ‖ *прым.* **ме́нтарскі**, -ая, -ае. *М. тон* (перан.: павучальны).

**МЕНТО́Л**, -у, *м.* Празрыстае крышталічнае пахучае рэчыва, якое атрымліваюць з эфірнага алею мяты. ‖ *прым.* **ментолавы**, -ая, -ае.

**МЕНТУЗО́ВЫ** *гл.* мянтуз.

**МЕНУЭ́Т**, -а, *М* -нуэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Старадаўні французскі танец з павольнымі, плаўнымі рухамі, а таксама музыка да гэтага танца. ‖ *прым.* **менуэ́тны**, -ая, -ае.

**МЕНШ**, *прысл.* **1.** *Выш. ст.* да прыслоўя мала. *Ведае м. за іншых. М. ведаеш — мацней спіш* (прыказка). **2.** У спалучэнні з прыметнікамі і прыслоўямі ўтварае апісальную форму ступені параўнання. *М. гаваркі. М. спакойны.* ◊ **Тым не менш** — нягледзячы на гэта, аднак, усё ж.

**МЕНШАВІ́ЗМ**, -у, *м.* Плынь у расійскай сацыял-дэмакратыі пачатку 20 ст., якая ўзнікла ў процівагу бальшавізму. ‖ *прым.* **меншаві́цкі**, -ая, -ае.

**МЕНШАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Член меншавіцкай партыі, паслядоўнік меншавізму. ‖ *ж.* **меншаві́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (разм.). ‖ *прым.* **меншаві́цкі**, -ая, -ае.

**МЕ́НШАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Меншая частка чаго-н. цэлага, якой-н. групы. ○ **Нацыянальная меншасць** — нацыянальнасць, якая ў колькасных адносінах утварае меншую частку ў параўнанні з асноўнай масай насельніцтва краіны.

**МЕ́НШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Рабіцца меншым, памяншацца, убываць. *Дні прыкметна меншаюць.*

**МЕ́НШЫ**, -ая, -ае. **1.** *Выш. ст.* да прыметніка малы (у 1—4 знач.). *Трэба чаравікі меншага памеру.* **2.** Самы малады сярод членаў сям'і. *М. сын канчае тэхнікум.* ◊ **Па меншай меры** — не менш чым.

**МЕНЮ́**, *нескл., н.* Набор страў, а таксама лісток з іх пералікам і коштам (у сталовай, рэстаране і пад.).

**МЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, мер, *ж.* **1.** Адзінка вымярэння. *М. даўжыні. М. вагі.* **2.** Велічыня, ступень чаго-н. **3.** Дзеянне або сукупнасць дзеянняў, сродкаў для ажыццяўлення чаго-н. *Прыняць рашучыя меры. Меры сацыяльнай асцярогі.* ◊ **Знаць меру** — праяўляць умеранасць у чым-н. **У меру** — 1) дастаткова, 2) якраз столькі, колькі і трэба. **У адной меры** — такі самы, як і быў раней, без змен. **Па меры** *чаго, прыназ. з Р* — у адпаведнасці з чым-н., супадаючы з чым-н. *Па меры сіл. Па меры магчымасці.*

**МЕРАПРЫЕ́МСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Арганізаванае дзеянне або сукупнасць дзеянняў, аб'яднаных адной задачай. *План культурных мерапрыемстваў.*

**МЕ́РАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак., чым з кім.* Параўноўваць сябе з кім-, чым-н. у якіх-н. адносінах. *М. сілаю. М. ростам з кім-н.* ‖ *зак.* **паме́рацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**МЕ́РАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак.* **1.** *каго-што.* Вызначаць велічыню, колькасць чаго-н. пры дапамозе якой-н. меры. *М. тэмпературу. М. пакой.* **2.** *што.* Надзяваць што-н. для прымеркі. *М. чаравікі.* **3.** *перан., што.* Хадзіць, рухацца па якой-н.

прасторы ўзад і ўперад або ў адным напрамку. *М. гарадскі брук.* ‖ *зак.* **памéраць**, -аю, -аеш, -ае; -аны.

**МЕРЗЛАТÁ**, -ы́, *ДМ* -лацé, *ж.* Прамёрзлая глеба, прамёрзлы стан глебы. *Вечная м.* ‖ *прым.* **мярзлóтны**, -ая, -ае. *Мярзлотная станцыя.*

**МЕРЗЛАТАЗНÁЎСТВА**, -а, *н.* Навука пра мёрзлыя тоўшчы ў зямной кары і мёрзлыя горныя пароды. ‖ *прым.* **мерзлатазнáўчы**, -ая, -ае.

**МЁРЗЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *мёрзлы.* ‖ *наз.* **мéрзласць**, -і, *ж.*

**МÉРЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; мёрз, мéрзла; -ні; *незак.* **1.** Рабіцца вельмі халодным, калець, дубянець. **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Гінуць ад марозу, вымярзаць. ‖ *зак.* **змéрзнуць**, -ну, -неш, -не; змёрз, змéрзла; -ні.

**МÉРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Пэўны размер. *Зняць мерку.* **2.** Прадмет, які служыць для вымярэння даўжыні. ◊ **Мераць адной меркай** — падыходзіць да ўсіх і да ўсяго аднолькава, не ўлічваючы асаблівасцей кожнага.

**МЕРКАВÁННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Думка, погляд. *Слушнае м.* **2.** Разлік, дапушчэнне.

**МЕРКАВÁЦЦА**, мяркýюся, мяркýешся, мяркýецца; мяркýйся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Намячацца. *Гэты будынак мяркуецца пад знос.* **2.** Жыць у згодзе, мірыцца. *Трэба м., жывучы ў адной хаце.* **3.** Раіцца. *М. з маці.*

**МЕРКАВÁЦЬ**, мяркýю, мяркýеш, мяркýе; мяркýй; меркавáны; *незак.* **1.** *што* і *з дадан.* Гаварыць, разважаць, абмяркоўваць што-н. *М., як жыць далей.* **2.** Рабіць якія-н. вывады, дапушчэнні. *М. па-свойму.* **3.** *што* і *з інф.* Мець намер, план. *М. паехаць у вёску.* **4.** *пра каго-што* і *аб кім-чым.* Ацэньваць якім-н. чынам, рабіць заключэнне. *М. аб чалавеку.*

**МЕРКАНТЫЛÍЗМ**, -у, *м.* **1.** Эканамічная тэорыя і палітыка гандлёвай буржуазіі Еўропы 16—18 стст., накіраваная на стымуляванне экспарту для перавышэння яго над імпартам з мэтай прыцягнення грошай у краіну. **2.** *перан.* Дробязная ашчаднасць, гандлярства (кніжн.). ‖ *прым.* **меркантылісты́чны**, -ая, -ае.

**МЕРКАНТЫЛÍСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік і прыхільнік меркантылізму (у 1 знач.). ‖ *прым.* **меркантылісты́чны**, -ая, -ае *і* **меркантылíсцкі**, -ая, -ае.

**МЕРКАНТЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Занадта ашчадны, своекарыслівы, гандлярскі. ‖ *наз.* **меркантыльнасць**, -і, *ж.*

**МÉРКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; мéркнуў, -нула *і* мерк, -кла; -ні; *незак.* **1.** Траціць паступова яснасць, бляск; цямнець. *Зоркі меркнуць.* **2.** *перан.* Траціць сілу, славу, значэнне. *Слава меркне.* ‖ *зак.* **памéркнуць**, -ну, -неш, -не; памéркнуў, -нула *і* памéрк, -кла; -ні.

**МÉРНЫ**, -ая, -ае. **1.** Рытмічны, роўны. *М. крок.* **2.** Які служыць для вымярэння чаго-н. *М. сажань.* **3.** Сярэдні па сіле, памерах (разм.). *М. ў росце.* ‖ *наз.* **мéрнасць**, -і, *ж.* (да 1 і 3 знач.).

**МÉРЦІ**, 1 і 2 ас. адз. звычайна не ўжыв., мрэ, мром, мрацé, мруць; мёр, мéрла, мéрлі; мручы́; *незак.* (разм.). Паміраць, гінуць.

**МЕРЫДЫЯ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Уяўная лінія, якая праходзіць праз полюсы зямнога шара і перасякае экватар. *Геаграфічны м.* ○ **Нябесны мерыдыян** — вялікі круг нябеснай сферы, які праходзіць праз зеніт і полюсы свету. ‖ *прым.* **мерыдыя́нны**, -ая, -ае *і* **мерыдыянáльны**, -ая, -ае. *Мерыдыянная плоскасць. Мерыдыянальная лінія.*

**МЕРЫНÓС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Парода танкарунных авечак. ‖ *прым.* **мерынóсавы**, -ая, -ае.

**МÉРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *незак.* **1.** Намервацца ажыццявіць якое-н. дзеянне. *М. ўцякаць. М. стрэльнуць.* **2.** Імкнуцца заняць якую-н. пасаду (разм.). *М. ў начальнікі.*

**МÉСА**, -ы, *мн.* -ы, мес, *ж.* **1.** У каталіцкай царкве: літургія. *Скончылася м.* **2.** Музычны харавы твор на тэкст гэтага набажэнства звычайна ў суправаджэнні аргана ці аркестра. *М. кампазітара Ліста.*

**МЕСÍЯ**, -і, *м.* (кніжн.). Пасланец Бога, які павінен прыйсці на зямлю і выратаваць чалавечы род ад зла і пакут. ‖ *прым.* **месія́нскі**, -ая, -ае.

**МÉСНІЦТВА**, -а, *н.* **1.** У сярэдневяковай Русі: парадак размеркавання дзяржаўных пасад у залежнасці ад знатнасці роду і ступені важнасці пасад продкаў. **2.** Абарона толькі сваіх інтарэсаў на шкоду агульнай справе. *Праяўляць м.* ‖ *прым.* **мéсніцкі**, -ая, -ае.

**МÉСНЫ**. У выразе: **месны склон** — склон, які адказвае на пытанні аб кім? аб чым?

**МЕСТАЧКÓВЫ** *гл.* мястэчка.

**МÉСЦА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Прастора, якая занята або можа быць занята кім-, чым-н., дзе што-н. адбываецца або размяшчаецца. *Перасоўваць з месца на месца. Рабочае м. Ні з месца!* (не рухацца!). **2.** Участак на зямной паверхні, мясцовасць. *Маляўнічае м.* **3.** *перан.* Становішча, якое займае хто-н. (у спорце, грамадскім жыцці, навуцы і пад.). *Заняць першае м. ў спаборніцтве.* **4.** Служба, работа, пасада. *Вакантнае м.* **5.** Урывак, частка літаратурнага, мастацкага або музычнага твора. *Самае цікавае м. ў рамане.* **6.** Адзін прадмет багажу (спец.). *Здаць у багаж тры месцы.* ◊ **Балючае месца** — пра тое, што ўвесь час хвалюе, мучыць. **Да месца** — якраз калі трэба, дарэчы. **Душа не на месцы** — пра адчуванне трывогі, непакою. **На месцы** — там, дзе што-н. адбылося ці будзе адбывацца. **Не знаходзіць (сабе) месца** — быць у стане крайняй трывогі. **Паставіць** *каго-н.* **на сваё месца** — збіць пыху з каго-н., зрабіць рэзкую заўвагу каму-н. пра нясціплыя паводзіны. **Пустое месца** (разм., неадабр.) — пра чалавека, ад якога няма ніякага толку. **Таптацца на месцы** (разм., неадабр.) — не рухацца наперад. **Цёплае месца** (разм.) — аб даходнай службе. ‖ *памянш.* **мéсцейка**, -а, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**МЕСЦА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да месца (у 1 знач.), напр.: *месцажыхарства, месцазнаходжанне, месцапражыванне, месцаразмяшчэнне.*

**МЕСЦАЖЫХÁРСТВА**, -а, *н.* Месца, дзе хто-н. пастаянна жыве.

**МЕСЦАЗНАХÓДЖАННЕ**, -я, *н.* Месца, дзе хто-н. знаходзіцца.

**МÉСЦАМ**, *прысл.* Тое, што і *месцамі.*

**МÉСЦАМІ**, *прысл.* У некаторых месцах, дзе-нідзе. *Дарога м. няроўная.*

**МЕСЦАНАРАДЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* Месца, дзе нарадзіўся хто-н.; радзіма каго-н. *М. Цішкі Гартнага.*

**МЕСЦАПРАБЫВÁННЕ**, -я, *н.* (афіц.). Месца, у якім хто-н. часова знаходзіцца або пастаянна жыве.

**МÉСЦІ**, мятý, мяцéш, мяцé; мяцём, мецяцé, мятýць; мёў, мялá, мялó; мяцí; мéцены; *незак., што.* **1.** Ачышчаць якую-н. паверхню ад смецця, пылу венікам, мятлой, шчоткай і пад. *М. палогу. М. вуліцу.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). З сілай гнаць, пераносіць што-н. з месца на месца. *Вецер мяце лісце. Пачало м.* (безас.). ‖ *зак.* **падмéсці**, -мятý, -мяцéш, -мяцé; -мяцём, -мецяцé, -мятýць; падмёў, -мялá, -мялó; -мяцí; -мéцены (да 1 знач.).

**МÉСЦІЦЦА**, мéшчуся, мéсцішся, мéсціцца; *незак.* **1.** Змяшчацца, знаходзіцца. **2.** Умяшчацца, змяшчацца.

**МÉСЯЦ**, -а, *м.* **1.** Нябеснае цела, спадарожнік Зямлі. *З-за хмары выплыў м.* **2.** *мн.* -ы, -аў. Дванаццатая частка астранамічнага года. *Больш як м. знаходзіўся ў шпіталі.* ‖ *памянш.-ласк.* **мéсячык**, -а, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **мéсячны**, -ая, -ае.

**МÉСЯЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Месячны адрэзак часу, прызначаны для правядзення якога-н. грамадскага мерапрыемства. *М. бяспекі руху.*

**МÉТА**, -ы, *ДМ* мéце, *мн.* -ы, мет, *ж.* Тое, што і *метка* (у 2 знач.).

**МÉТАД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спосаб пазнання з'яў прыроды і грамадскага жыцця. **2.** Прыём, сістэма прыёмаў у якой-н. галіне дзейнасці з мэтай пабудовы і абгрунтавання сістэмы ведаў. *Перадавыя метады вытворчасці.*

**МЕТАДАЛÓГІЯ**, -і, *мн.* -і, -гій, *ж.* **1.** Вучэнне аб метадзе навуковага пазнання. *Навуковая м.* **2.** Сукупнасць найбольш агульных прынцыпаў, палажэнняў і метадаў, якія прымяняюцца ў той ці іншай навуцы. *М. гісторыі.* ‖ *прым.* **метадалагíчны**, -ая, -ае.

**МЕТАДЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па методыцы выкладання

якога-н. прадмета. **2.** Асоба, якая складае расклад заняткаў, экзаменаў, сочыць за выкананнем вучэбнай нагрузкі, вядзе дакументацыю ў вышэйшай навучальнай установе. ‖ *ж.* **метады́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **метады́сцкі**, -ая, -ае.

**МЕТАДЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* методыка. **2.** Планамерны, строга паслядоўны. *Метадычная работа.* ‖ *наз.* **метады́чнасць**, -і, *ж.*

**МЕТА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Хімічна простае рэчыва або сплаў, якім уласцівы бляск, коўкасць і добрая праводнасць цеплыні і электрычнасці. ○ **Высакародныя металы** — металы, якія не акісляюцца і не ржавеюць (золата, серабро, плаціна). **Каляровыя металы** — усе металы і іх сплавы, акрамя жалеза і яго сплаваў. **Лёгкія металы** — металы, якія валодаюць малой шчыльнасцю, ніжэйшай за шчыльнасць жалеза (алюміній, магній, натрый і інш.). **Цяжкія металы** — металы з вялікай атамнай вагой або шчыльнасцю (жалеза, ванадый, свінец, ртуць і інш.). **Чорныя металы** — жалеза і яго сплавы (чыгун, сталь). ‖ *прым.* **металі́чны**, -ая, -ае. *Металічныя грошы. М. голас* (перан.: звонкі і рэзкі).

**МЕТАЛА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. метал, металічны, напр.: *металавыраб, металададабаўкі, металаёмістасць, металанарыхтоўчы, металапакрыццё, металаплавільны, металажалезабетон, металапапяровы, металапалімерны, металапластмаса, металацэмент, металашкло, металападобны, металакамбінат, металапрадукцыя.*

**МЕТАЛААПРАЦО́ЎЧЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да апрацоўкі металаў. *Металаапрацоўчая прамысловасць.*

**МЕТАЛАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука, якая займаецца вывучэннем структуры і фізічных уласцівасцей металаў і сплаваў. **2.** Друкаванне з гравіраваных або траўленых металічных форм з паглыбленым рысункам (спец.). ‖ *прым.* **металаграфі́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **металагра́фскі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**МЕТАЛАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Навука, якая вывучае будову і фізічныя ўласцівасці металаў і сплаваў. ‖ *прым.* **металазна́ўчы**, -ая, -ае.

**МЕТАЛАЛО́М**, -у, *м.* Металічны лом[2], які ідзе на перапрацоўку. *Збор металалому.*

**МЕТАЛАНО́СНЫ**, -ая, -ае. Які мае ў сваім складзе метал. *М. пласт.* ‖ *наз.* **металано́снасць**, -і, *ж.*

**МЕТАЛАПРАКА́ТНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да пракаткі металаў. *М. завод.*

**МЕТАЛАПРАМЫСЛО́ВАСЦЬ**, -і, *ж.* Прамысловасць, якая займаецца вытворчасцю металаў і вырабаў з іх. ‖ *прым.* **металапрамысло́вы**, -ая, -ае.

**МЕТАЛАРЭ́ЗНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для апрацоўкі металаў рэзаннем. *М. станок.*

**МЕТАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.) **1.** Рабочы металапрамысловасці. **2.** Выканаўца або прыхільнік рок-музыкі.

**МЕТАЛО́ІД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Устарэлая назва неметала. ‖ *прым.* **металó́ідны**, -ая, -ае.

**МЕТАЛУ́РГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па металургіі.

**МЕТАЛУ́РГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука аб спосабах прамысловай вытворчасці металаў і сплаваў і іх першаснай апрацоўцы. **2.** Прамысловая вытворчасць металаў, сплаваў, іх механічная і хімічная апрацоўка. *Чорная м. Каляровая м.* ‖ *прым.* **металургі́чны**, -ая, -ае.

**МЕТАМАРФО́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -фоз, *ж.* **1.** Відазмяненне, пераўтварэнне, пераход у іншую форму развіцця з набыццём новага знешняга выгляду і функцый (спец.). *М. вусеня ў матылька.* **2.** Поўная канчатковая перамена, змяненне (кніжн.). *З ім адбылася незвычайная м.*

**МЕТА́Н**, -у, *м.* Прыродны газ без колеру і паху, які выкарыстоўваецца ў якасці паліва. ‖ *прым.* **мета́навы**, -ая, -ае.

**МЕТАНІ́МІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Від тропа: перанясенне назвы аднаго прадмета на другі на падставе іх сумежнасці. ‖ *прым.* **метанімі́чны**, -ая, -ае; *наз.* **метанімі́чнасць**, -і, *ж.*

**МЕТАСТА́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Развіццё другасных ачагоў захворвання ў новых месцах арганізма, а таксама сам такі ачаг. ‖ *прым.* **метастаты́чны**, -ая, -ае.

**МЕТАТЭ́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -тэз, *ж.* (спец.). Адвольная перастаноўка двух гукаў або складоў у слове. ‖ *прым.* **метатэ́зны**, -ая, -ае.

**МЕТА́ФАРА**, -ы, *мн.* -ы, -фар, *ж.* Від тропа: ужыванне слова або выразу ў пераносным сэнсе, заснаванае на падабенстве або параўнанні. ‖ *прым.* **метафары́чны**, -ая, -ае.

**МЕТАФАРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* метафара. **2.** Насычаны метафарамі, багаты на метафары. *М. стыль.* ‖ *наз.* **метафары́чнасць**, -і, *ж.*

**МЕТАФІ́ЗІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Ідэаліст, прыхільнік метафізікі. **2.** *перан.* Чалавек, схільны да абстрактных разважанняў.

**МЕТАФІ́ЗІКА**, -і, *ДМ* -зіцы, *ж.* **1.** Ідэалістычнае філасофскае вучэнне аб нязменных першаасновах свету, якія выходзяць за межы вопыту. **2.** Недыялектычны спосаб мыслення, які разглядае з'явы без уліку іх узаемнай сувязі і развіцця. **3.** Што-н. незразумелае, мудрагелістае, надзвычай абстрактнае (разм.). ‖ *прым.* **метафізі́чны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**МЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* **1.** *гл.* меціць[1]. **2.** *мн.* -і, -так. Распазнавальны знак на чым-н. *Паставіць меткі на бялізне.*

**МЕ́ТКІ**, -ая, -ае. **1.** Здольны дакладна пападаць у цэль. *М. стралок.* **2.** *перан.* Які выразна і трапна азначае што-н. *Меткае параўнанне.* ‖ *наз.* **ме́ткасць**, -і, *ж.*

**МЕТЛЮЖО́К**, -жку́, *м.* Травяністая кармавая расліна сямейства злакавых. *М. лугавы.* ‖ *прым.* **метлюжко́вы**, -ая, -ае.

**МЕТО́ДЫКА**, -і, *ДМ* -дыцы, *мн.* -і, -дык, *ж.* Сукупнасць метадаў практычнага выканання чаго-н., а таксама навука аб метадах навучання. *М. беларускай мовы.* ‖ *прым.* **метады́чны**, -ая, -ае.

**МЕТР**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адзінка вымярэння даўжыні ў метрычнай сістэме мер, роўная ста сантыметрам. *Квадратны м. Пакой даўжынёй тры метры.* **2.** Лінейка такой даўжыні з нанесенымі на ёй дзяленнямі на сантыметры. *Складны м.* ‖ *прым.* **метро́вы**, -ая, -ае.

**МЕТР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У вершаскладанні: памер верша. *Ямбічны м.*

**МЕТРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да метрапалітэна, напр.: *метрабуд, метрабудаўнік, метравакзал, метратраса, метралінія, метрастанцыя.*

**МЕТРА́Ж**, -у́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Велічыня чаго-н. у метрах. **2.** Плошча памяшкання ў квадратных метрах. *М. пакоя.*

**МЕТРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб вымярэнні фізічных велічынь, метадах і сродках забеспячэння іх адзінства і спосабах дасягнення дакладнасці. ‖ *прым.* **метралагі́чны**, -ая, -ае.

**МЕТРАНО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор з маятнікам, які адзначае кароткія прамежкі часу, звычайна выкарыстоўваецца для вызначэння тэмпу ў музыцы. ‖ *прым.* **метрано́мны**, -ая, -ае.

**МЕТРАНПА́Ж**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Старшы наборшчык друкарні, які вярстае набор у старонкі або кіруе такой вёрсткай.

**МЕТРАПАЛІТЭ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гарадская электрычная чыгунка, звычайна падземная. ‖ *прым.* **метрапалітэ́нны**, -ая, -ае *і* **метрапалітэ́наўскі**, -ая, -ае (разм.).

**МЕТРАПО́ЛІЯ**, -і, *мн.* -і, -лій, *ж.* Дзяржава ў адносінах да калоній, якімі яна валодае.

**МЕТРДАТЭ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Распарадчык у рэстаране, які кіруе працай афіцыянтаў.

**МЕТРО́**, *нескл.*, *н.* Тое, што і *метрапалітэн. Сустрэцца каля м.*

**МЕТРО́ВЫ** *гл.* метр[1].

**МЕТРО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне метралогіі.

**МЕТРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* (разм.). **1.** Мерка (звычайна двухметровая), пры дапамозе якой падлічваюць што-н. у метрах. **2.** Пра дровы, дошкі і пад. даўжынёю ў адзін метр. *Дошка-м.*

**МЕ́ТРЫКА**[1], -і, *ДМ* -рыцы, *ж.* Вучэнне аб вершаскладанні і вершаваных памерах, а таксама сукупнасць вершаваных памераў. ‖ *прым.* **метры́чны**, -ая, -ае.

**МЕ́ТРЫКА**[2], -і, *ДМ* -рыцы, *ж.* Выпіска з метрычнай кнігі аб даце нараджэння.

**МЕТРЫ́ЧНЫ**[1], -ая, -ае. У выразе: **метрычная сістэма** — агульная назва міжнароднай дзесятковай сістэмы адзінак, у аснову якой пакладзены метр і кілаграм.

**МЕТРЫ́ЧНЫ**[2], -ая, -ае. Які звязаны з запісамі актаў нараджэння, заключэння шлюбу, смерці. *Метрычнае пасведчанне. Метрычная кніга.*

**МЕТРЫ́ЧНЫ**[3] *гл.*метрыка[1].

**МЕ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Інструмент, якім робяць меткі, знакі. **2.** Той, хто ставіць меткі, знакі на чым-н.

**МЕТЫ́Л**, -у, *м.* Вугляродная група, якая ўваходзіць у склад многіх арганічных злучэнняў. ‖ *прым.* **метылавы**, -ая, -ае. *М. спірт.*

**МЕТЫ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Нашчадак ад шлюбу людзей розных рас[1]. ‖ *ж.* **меты́ска**, -і, *ДМ* -тысцы, *мн.* -і, -сак. ‖ *прым.* **меты́сны**, -ая, -ае.

**МЕТЭА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. метэаралагічны, напр.: *метэастанцыя, метэацэнтр, метэаслужба, метэазводка, метэаназіранні, метэаўмовы.*

**МЕТЭАРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб зямной атмасферы, яе будове, уласцівасцях і працэсах, што адбываюцца ў ёй. ‖ *прым.* **метэаралагі́чны**, -ая, -ае. *Метэаралагічная зводка.*

**МЕТЭАРО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне метэаралогіі.

**МЕТЭАРЫ́Т**, -а, *М* -рыце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Цвёрдае касмічнае цела, што падае на Зямлю з міжпланетнай прасторы. ‖ *прым.* **метэары́тны**, -ая, -ае *і* **метэары́чны**, -ая, -ае.

**МЕТЭО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Распаленае нябеснае цела, якое ўлятае ў зямную атмасферу з міжпланетнай прасторы. ‖ *прым.* **метэо́рны**, -ая, -ае. *М. дождж.*

**МЕХ**[1], ме́ха, *мн.* мяхі́, мяхо́ў, *м.* **1.** Тара з палатна для захоўвання і перавозкі сыпучых цел, дробных рэчаў і пад. *Палатняны м.* **2.** Мера для чаго-н. сыпкага. *Пазычыць м. бульбы.* ◊ **Біцца за пусты мех** (разм.) — настойліва даводзіць відавочнае, за што няма патрэбы спрачацца. **Нагаварыць мех з торбай** — нагаварыць многа і абы-чаго.

**МЕХ**[2], ме́ха, *мн.* мяхі́, мяхо́ў, *м.* **1.** Прыстасаванне са скуры для нагнятання паветра ў горан у кавальскай справе, а таксама для прывядзення ў дзеянне некаторых музычных інструментаў. **2.** У фатаграфіі: святлонепранікальная частка фатаграфічнай камеры, падобная на гармонік.

**МЕХАНА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. механізм, механічны, напр.: *механагідраўлічны, механазборачны, механатэрапія, механаўзброенасць.*

**МЕХАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Аснасціць (аснашчаць) машынамі, механізмамі, перавесці (пераводзіць) на механічную цягу, энергію. *М. сельскую гаспадарку.* ‖ *наз.* **механіза́цыя**, -і, *ж. М. працаёмкіх працэсаў.*

**МЕХАНІЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па абслугоўванні сельскагаспадарчых машын. ‖ *прым.* **механіза́тарскі**, -ая, -ае.

**МЕХАНІ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Унутраная частка машыны, прылады, апарата і пад., якая прыводзіць іх у дзеянне. *Гадзіннікавы м.* **2.** *перан.* Унутраная сістэма чаго-н., што вызначае парадак якога-н. віду дзеяння. *Дзяржаўны м. Гаспадарчы м.* **3.** *чаго.* Сукупнасць працэсаў, з якіх складаецца якая-н. фізічная, хімічная, фізіялагічная і пад. з'ява. *М. хімічнай рэакцыі.* ‖ *прым.* **механі́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**МЕХА́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па механіцы, а таксама асоба, якая назірае за работай машын.

**МЕХА́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* **1.** Раздзел фізікі аб руху цел у прасторы і сілах, якія выклікаюць гэты рух. *Тэарэтычная м.* **2.** Галіна тэхнікі, што займаецца пытаннямі прымянення вучэння пра рух і сілы для вырашэння практычных задач. *Прыкладная м.* **3.** *перан.* Складаная будова, сутнасць чаго-н. (разм.). *Хітрая м.* ○ **Нябесная механіка** — раздзел астраноміі, які вывучае рух нябесных цел Сонечнай сістэмы. ‖ *прым.* **механі́чны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *М. рух.*

**МЕХАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік механіцызму.

**МЕХАНІЦЫ́ЗМ**, -у, *м.* Светапогляд, які зводзіць усю разнастайнасць свету да механічнага руху матэрыі, а складаныя заканамернасці развіцця да законаў механікі. ‖ *прым.* **механісты́чны**, -ая, -ае.

**МЕХАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* механіка, механізм. **2.** Машынальны, які не рэгулюецца свядомасцю; аўтаматычны. *Механічная работа. Запомніць механічна* (прысл.).

**МЕ́ЦІЦЬ**[1], ме́чу, ме́ціш, ме́ціць; ме́чаны; *незак., каго-што.* Ставіць на кім-, чым-н. адметны знак, метку. ‖ *зак.* **наме́ціць**, -ме́чу, -ме́ціш, -ме́ціць; -ме́чаны *і* **паме́ціць**, -ме́чу, -ме́ціш, -ме́ціць; -ме́чаны. ‖ *наз.* **ме́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**МЕ́ЦІЦЬ**[2], ме́чу, ме́ціш, ме́ціць; *незак.* **1.** *у каго-што.* Старацца папасці ў каго-, што-н. *М. у звера.* **2.** *з інф.* Мець намер, намервацца ажыццявіць якое-н. дзеянне. *М. укусіць.* **3.** Імкнуцца заняць якое-н. становішча, пасаду (разм.). ‖ *зак.* **наме́ціць**, -ме́чу, -ме́ціш, -ме́ціць; -ме́чаны (да 2 знач.).

**МЕ́ЦЦА**, ма́юся, ма́ешся, ма́ецца; ма́йся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Быць у наяўнасці; знаходзіцца, існаваць. *Маецца запас харчоў.* **2.** Адчуваць сябе. *Як вы маецеся?* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *з інф.* Аб тым, што павінна быць. *Меўся ўчора прыехаць.* ◊ **Маецца на ўвазе** — мяркуецца, падразумяваецца.

**МЕ́ЦЦА-САПРА́НА**, *нескл., н.* **1.** Жаночы голас, сярэдні паміж сапрана і кантральта. **2.** Спявачка з такім голасам.

**МЕЦЬ**, ма́ю, ма́еш, ма́е; меў, ме́ла; май; *незак.* **1.** *каго-што.* Валодаць кім-, чым-н. як уласнасцю. *М. сваю хату.* **2.** *што.* Валодаць чым-н. *М. прафесію.* **3.** У спалучэнні з *В* скл. назоўнікаў, якія абазначаюць уласцівасць або стан, азначае: а) дзеянне па знач. гэтага назоўніка. *М. намер* (намервацца). *М. ахвоту* (хацець); б) быць, знаходзіцца ў якім-н. стане. *М. непрыемнасці.* **4.** У спалучэнні асабовых форм з інф. набывае знач.: павінен або намервaецца што-н. зрабіць. ◊ **Вока не мець** (разм.) — быць непрыхільным да каго-н., быць незадаволеным кім-, чым-н. **Вось табе і маеш!** (разм.) — вокліч з выпадку чаго-н. нечаканага, дзіўнага, выказванне расчаравання, здзіўлення. **Мець вушы** (разм.) — прыслухоўвацца, слухаць. **Мець зуб** *на каго* (разм.) — імкнуцца прычыніць шкоду, непрыемнасць каму-н. **Мець ласку** (разм.) — 1) любіць каго-, што-н.; 2) мець гонар, мець магчымасць (зрабіць, сказаць і г.д.). **Мець на прыкмеце** — улічваць, браць пад увагу каго-, што-н. для якой-н. мэты. **Мець руку** (разм.) — мець падтрымку якой-н. важнай, уплывовай асобы. **Мець слова** — атрымліваць дазвол выступіць дзе-н. **Мець справу** *з кім-чым* — уступаць у нейкія адносіны, сутыкацца з кім-, чым-н. **(Не) мець за душой** *чаго* (разм.) — пра наяўнасць (адсутнасць) чаго-н. у каго-н. ‖ *зак.* **займе́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 1 і 2 знач.; разм.).

**МЕЦЭНА́Т**, -а, *М* -на́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Багаты апякун навук і мастацтваў; увогуле той, хто апякуецца над якой-н. справай. ‖ *ж.* **мецэна́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **мецэна́цкі**, -ая, -ае.

**МЕЧ**, мяча́, *мн.* мячы́, мячо́ў, *м.* Старадаўняя халодная зброя, падобная на вялікі нож, востры з абодвух бакоў. ◊ **Падняць меч** *на каго-н.* — пачаць вайну, пайсці супраць каго-н. **Скрыжаваць мячы** — пачаць паядынак, бой, спрэчку.

**МЕЧАНО́СЕЦ**, -но́сца, *мн.* -но́сцы, -но́сцаў, *м.* Сярэдневяковы воін, узброены мячом, а таксама слуга рыцара, які насіў за ім меч.

**МЕ́ЧАНЫ**, -ая, -ае. Які мае на сабе нейкую метку, знак. *Мечаныя гусі. Мечаная бялізна.*

**МЕЧ-РЫБА́**, меч-ры́бы, *мн.* меч-ры́бы, меч-ры́б, *ж.* Драпежная марская рыба атрада акунепадобных з адросткам на верхняй сківіцы, падобным на меч.

**МЕ́ШАЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Прылада для размешвання чаго-н.

**МЕШАНІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Сумесь чаго-н. разнароднага. **2.** *перан.* Блытаніна, адсутнасць яснасці ў чым-н. *М. ў галаве.*

**МЕ́ШАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Кармавая сумесь для жывёлы, птушак. **2.** Змешаны пасеў кармавых раслін.

**МЕ́ШАНЬ**[1], -і, *ж.* **1.** Сумесь. *М. пяску і гліны.* **2.** Жывёла або расліна, якія атрыманы ў выніку скрыжавання дзвюх розных парод, двух гатункаў; мяшанец (разм.). *М.*

*кабылы і асла.* **3.** Тое, што і *мешанка. Вядро мешані.*

**МЕ́ШАНЬ**[2], -і, *ж.* Паўторнае ворыва. *Ячмень сеялі па мешані.*

**МЕШКАВА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Надта шырокі, падобны на мяшок (пра адзенне). *М. касцюм.* **2.** *перан.* Нязграбны, няспрытны, няўклюдны. *М. хлопец.* ‖ *наз.* **мешкава́тасць**, -і, *ж.*

**МЕШКАВІ́НА**, -ы, *ж.* Тканіна, з якой шыюць мяшкі.

**МЕШЧАНІ́Н**, -а, *мн.* мяшча́не *і (з ліч. 2, 3, 4)* мешчані́ны, мяшча́н, *м.* **1.** У царскай Расіі: асоба, якая належала да гарадскога рамесна-гандлёвага саслоўя. **2.** *перан.* Чалавек з дробнаўласніцкімі інтарэсамі, вузкім кругаглядам. ‖ *ж.* **мяшча́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **мяшча́нскі**, -ая, -ае.

**МЁД**, -у, *М* мёдзе, *м.* **1.** Салодкае густое рэчыва, якое выпрацоўваюць пчолы з нектару кветак. *Ліпавы м.* **2.** Напітак, прыгатаваны з гэтага рэчыва. ‖ *прым.* **мядо́вы**, -ая, -ае. ◊ **Мядовы месяц** — першы месяц сямейнага жыцця.

**МЁДАВАРЭ́ННЕ**, -я, *н.* Прамысловы выраб мёду як напітку. ‖ *прым.* **медава́рны**, -ая, -ае.

**МЁРЗЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які зацвярдзеў ад марозу. *Мёрзлая зямля.* **2.** Сапсаваны ад марозу. *Мёрзлая бульба.* ‖ *наз.* **мёрзласць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**МЁРТВАНАРО́ДЖАНЫ**, -ая, -ае. Які нарадзіўся мёртвым. *Мёртванароджанае дзіця. М. праект* (перан.).

**МЁРТВЫ**, -ая, -ае. **1.** Той, які памёр; нежывы. *М. чалавек. Хаваць мёртвага* (наз.). **2.** *перан.* Пазбаўлены жыццёвасці; апусцелы. *М. твар. Мёртвая вуліца.* ○ **Мёртвая зона** (спец.) — прастора вакол радыёстанцыі, у якой назіраецца паслабленне або адсутнасць прыёму радыёсігналаў. **Мёртвая прастора** — прастора, якая не прастрэльваецца франтавым агнём. **Мёртвы пункт** — стан звёнаў механізма, калі яны знаходзяцца ў імгненнай раўнавазе. **Мёртвы сезон** — перыяд застою ў прамысловасці, гандлі. **Мёртвы штыль** — поўная адсутнасць ветру. **Мёртвы якар** — нерухомы якар, які пастаянна ляжыць на дне і служыць для ўстаноўкі плывучых маякоў, бочак, прыпынку суднаў. ◊ **Ляжаць мёртвым грузам** — быць без выкарыстання, зусім непатрэбным. **Мёртвая хватка** — здольнасць упарта, неадступна дабівацца свайго. **Піць мёртвую** (разм.) — піць запоем.

**МІ**, *нескл., н.* Трэці гук музычнай гамы, а таксама нота, якая абазначае гэты гук.

**МІГ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Вельмі кароткі прамежак часу, імгненне. *У адзін м.*

**МІГА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). **1.** Газоўка, лямпачка без шкла. **2.** Ліхтар, які ўспышкамі падае сігналы транспарту.

**МІГА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). **1.** Звязаны з працэсам мігання, які служыць для мігання. *Мігальная перапонка вока.* **2.** Забяспечаны раснічкамі, якія заўсёды знаходзяцца ў руху. *М. эпітэлій.*

**МІ́ГАМ**, *прысл.* (разм.). Вельмі хутка. *М. збегаў.*

**МІГАТЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які мігаціць. *М. агеньчык.*

**МІГАЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -гаці́ць; *незак.* **1.** Паказвацца на кароткі час і знікаць з поля зроку. **2.** Свяціць, блішчаць няроўным бляскам. *Мігацяць зоркі.* ‖ *наз.* **мігаце́нне**, -я, *н.*

**МІГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Хутка паднімаць і апускаць павекі. *М. вачамі.* **2.** Падаваць знак рухам павек. *М. сябру.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Свяціцца слабым, няроўным святлом. *Зорка мігае.* **4.** *перан.* Хутка праносіцца перад вачамі, мільгаць. *Мігаюць машыны.* ‖ *аднакр.* **мігну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **міга́нне**, -я, *н.*

**МІ́ГІ**. У выразах: **на мігі, на мігах** (гаварыць, перагаворвацца і пад.) — размаўляць пры дапамозе жэстаў, знакаў.

**МІГРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е *і* **МІГРЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак.* Перасяліцца (перасяляцца), здзейсніць (здзяйсняць) міграцыю.

**МІГРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Перамяшчэнне, перасяленне насельніцтва ўнутры краіны або за яе межы, жывёл з адной мясцовасці ў іншую і г.д. *Працоўная м. М. рыб. Сезонная м. жывёл.* ‖ *прым.* **міграцы́йны**, -ая, -ае.

**МІГРЭ́НЬ**, -і, *ж.* Прыступ болю ў адной палавіне галавы. ‖ *прым.* **мігрэ́невы**, -ая, -ае.

**МІГЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ці́ць; *незак.* **1.** Ледзь свяціцца. *У акне мігцеў скупы агеньчык.* **2.** Свяціць няроўным бляскам. *За лесам мігцелі языкі полымя.* **3.** *перан.* З'яўляцца на кароткі час і зноў знікаць. *Мігцелі думкі ў галаве.* ‖ *наз.* **мігце́нне**, -я, *н.*

**МІ́ДЗІ**. **1.** *нескл., н.* Спадніца, сукенка, паліто сярэдняй даўжыні. *Насіць м. Мода на м.* **2.** *прым., нязм.* Пра спадніцу, сукенку, паліто сярэдняй даўжыні. *Паліто м. Спадніца м.*

**МІ́ДЫЯ**, -і, *мн.* -і, -дый, *ж.* Ядомы двухстворкавы марскі малюск.

**МІЁМА**, -ы, *мн.* -ы, -ём, *ж.* (спец.). Дабраякасная пухліна з мышачнай тканкі. ‖ *прым.* **міёмны**, -ая, -ае.

**МІЖ**, *прыназ.* **1.** *з Т.* Выражае прасторавыя адносіны, ужыв. для ўказання на прадметы, пасярод якіх або ў прамежку паміж якімі што-н. знаходзіцца, адбываецца. *Дарога віецца між палямі.* **2.** *з Р. або Т.* Выражае аб'ектныя адносіны; служыць для ўказання на групу прадметаў або асоб, у асяроддзі якіх наглядаюцца ўзаемасувязі. *Спрэчка між сяброў. Дружба між народамі.* ◊ **Між іншым** — 1) мімаходам, не звяртаючы асаблівай увагі; 2) дарэчы, к слову кажучы. **Між (паміж) намі (кажучы)** — аб чым-н. такім, чаго не варта гаварыць іншым.

**МІЖ...** *прыстаўка.* Утварае прыметнікі са знач.: які адбываецца паміж некалькімі аднароднымі прадметамі, аб'ектамі, напр.: *міжгародні, міжкантынентальны, міжабласны, міжінстытуцкі.*

**МІЖВЕ́ДАМАСНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адбываецца паміж рознымі ведамствамі. *Міжведамасная перапіска.* **2.** Які аб'ядноўвае дзейнасць розных ведамстваў. *Міжведамасная камісія.*

**МІЖВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не залежыць ад волі, свядомасці. *М. смех.* **2.** Выпадковы, ненаўмысны. *М. сведка.* ‖ *наз.* **міжво́льнасць**, -і, *ж.*

**МІЖГАРО́ДНІ**, -яя, -яе. Які дзейнічае, існуе паміж гарадамі. *Міжгародняя тэлефонная сувязь.*

**МІЖНАРО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Спецыяліст па пытаннях міжнароднай палітыкі, міжнароднага права, міжнароднага становішча.

**МІЖНАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да знешняй палітыкі, да зносін паміж народамі і краінамі. *М. агляд.* **2.** Які існуе паміж народамі, распаўсюджваецца на многія народы, інтэрнацыянальны. *Міжнародная арганізацыя.*

**МІЖПЛАНЕ́ТНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца, адбываецца паміж планетамі, у касмічнай прасторы. *М. пералёт.*

**МІЖРА́ДДЗЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Прастора, адлегласць паміж радамі пасаджаных або пасеяных раслін. ‖ *прым.* **міжра́дны**, -ая, -ае.

**МІЖРАДКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* міжрадкоўе. **2.** Які знаходзіцца паміж радкамі тэксту.

**МІЖРАДКО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў. Тое, што і *міжраддзе.* ‖ *прым.* **міжрадко́вы**, -ая, -ае.

**МІЖРАЁННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які існуе, адбываецца паміж раёнамі. *Міжраённая сустрэча. Міжраённая сувязь.* **2.** Агульны для некалькіх раёнаў. *М. піянерскі лагер.*

**МІЖРЭ́БЕРНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца паміж рэбрамі. *Міжрэберная мышца.*

**МІЖРЭ́ЧЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Мясцовасць, прастора паміж дзвюма або некалькімі рэкамі. ‖ *прым.* **міжрэ́чны**, -ая, -ае.

**МІЗАНСЦЭ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -сцэ́н, *ж.* Размяшчэнне дзеючых асоб і дэкарацый на сцэне ў розныя моманты выканання п'есы. ‖ *прым.* **мізансцэні́чны**, -ая, -ае.

**МІЗАНТРО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавеканенавіснік. ‖ *ж.* **мізантро́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак.

**МІЗАНТРО́ПІЯ**, -і, *ж.* Чалавеканенавісніцтва, варожыя адносіны да людзей. ‖ *прым.* **мізантрапі́чны**, -ая, -ае.

**МІЗАРНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Худнець, траціць належны выгляд. *Жанчына на вачах мізарнела. Мізарнее душа гэтага чалавека* (перан.). **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Рабіцца меншым, менш значным (разм.). *Кавалак вяндліны з кож-*

*ным днём мізарнее.* ‖ *зак.* **змізарнéць**, -éю, -éеш, -éе *і* **памізарнéць**, -éю, -éеш, -éе.

**МІЗЭ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Вельмі малы, нязначны. *М. тэрмін. Мізэрныя інтарэсы.* **2.** Схуднелы, худы, чэзлы. *Мізэрнае дзіця. Мізэрныя расліны.* **3.** *перан.* Несамавіты на выгляд, убогі. *Ля ганка стаяў м. чалавек.* ‖ *наз.* **мізэ́рнасць**, -і, *ж.*

**МІКРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) вельмі малы, дробны, напр.: *мікраінфаркт, мікрараён, мікрафільм, мікрачасцінка, мікрааўтамабіль, мікравыбух, мікрапрацэс, мікрарухавік, мікрасістэма;* 2) адна мільённая частка той адзінкі, што называецца ў другой частцы слова, напр.: *мікраампер, мікравольт, мікрарэнтген.*

**МІКРААРГАНІ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Нябачны простым вокам пераважна аднаклетачны раслінны або жывёльны арганізм.

**МІКРАБІЁЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне мікрабіялогіі.

**МІКРАБІЯЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел біялогіі, які вывучае мікраарганізмы. ‖ *прым.* **мікрабіялагі́чны**, -ая, -ае.

**МІКРАКЛІ́МАТ**, -у, *М* -маце, *м.* **1.** Асаблівасці клімату на невялікім участку зямной паверхні. **2.** *перан.* Узаемаадносіны, умовы працы ў невялікім калектыве, сям'і. *Маральны м.* ‖ *прым.* **мікракліматы́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**МІКРАКО́СМ**, -у, *м.* **1.** Свет вельмі малых велічынь (атамаў, малекул і г.д.); *проціл.* макракосм. **2.** У філасофіі: свет чалавека як адлюстраванне Сусвету.

**МІКРАЛІТРА́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* (разм.). Мікралітражны аўтамабіль.

**МІКРАЛІТРА́ЖНЫ**, -ая, -ае. Вельмі малы па літражы, меншы за малалітражны.

**МІКРАПО́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Пра вырабы з рызіны: з мікраскапічнымі порамі. *Мікрапорыстая падэшва.*

**МІКРАПРАЦЭ́САР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыстасаванне, якое выконвае алгарытмічную апрацоўку інфармацыі і прымяняецца ў электронных вымяральных прыборах. ‖ *прым.* **мікрапрацэ́сарны**, -ая, -ае. *Выстаўка мікрапрацэсарнай тэхнікі.*

**МІКРАСКАПІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Зроблены, даследаваны пры дапамозе мікраскопа. *М. аналіз.* **2.** Вельмі малы, які можна ўбачыць толькі пад мікраскопам. *Мікраскапічныя клеткі.* **3.** *перан.* Вельмі маленькі, нязначны па велічыні, памерах. *Мікраскапічная дэталь.* ‖ *наз.* **мікраскапі́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**МІКРАСКО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аптычны прыбор для разглядвання прадметаў, якія нельга ўбачыць простым вокам. *Аптычны м. Электронны м.* ‖ *прым.* **мікраско́пны**, -ая, -ае. *М. аб'ектыў.*

**МІКРАФО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор, які пераўтварае гукавыя ваганні ў электрычныя для ўзмацнення гучання. *Электрадынамічны м.* ‖ *прым.* **мікрафо́нны**, -ая, -ае.

**МІКРАХВА́ЛЕВЫ**, -ая, -ае. Які выкарыстоўвае электрамагнітнае выпрамяненне кароткіх радыёхваль.

**МІКРАХВАЛЁЎКА**, -і, *мн.* -і, -лёвак, *ж.* (разм.). Прылада для першаснай тэрмічнай апрацоўкі або прыгатавання ежы.

**МІКРО́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *мікраарганізм. Хваробатворныя мікробы.* ‖ *прым.* **мікро́бны**, -ая, -ае.

**МІКРО́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Інструмент для вымярэння вельмі малых лінейных памераў. ‖ *прым.* **мікраметры́чны**, -ая, -ае.

**МІКРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адзінка вымярэння даўжыні, роўная мільённай частцы метра. ‖ *прым.* **мікро́нны**, -ая, -ае.

**МІ́КСЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыстасаванне для прыгатавання сумесей, змешвання. ‖ *прым.* **мі́ксерны**, -ая, -ае.

**МІКСТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ту́р, *ж.* Вадкі лекавы сродак з сумесі некалькіх рэчываў. *М. ад кашлю.* ‖ *прым.* **міксту́рны**, -ая, -ае.

**МІЛАВА́ЦЦА**, -лу́юся, -лу́ешся, -лу́ецца; -лу́йся; *незак.* Лашчыцца, галубіцца, абнімацца, праяўляць узаемную любоў.

**МІ́ЛАВАЦЬ**, -лую, -луеш, -луе; -луй; *незак., каго (што).* Дараваць каму-н. віну. *Нельга м. забойцу.*

**МІЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; *незак., каго (што).* Песціць, галубіць, пялегаваць. *М. дзіця.*

**МІЛАВІ́ДНЫ**, -ая, -ае. З прыемным на выгляд тварам, прывабны. *Мілавідная дзяўчына.* ‖ *наз.* **мілаві́днасць**, -і, *ж.*

**МІЛАГУ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Прыемны на слых, які прыемна гучыць. *Мілагучная мелодыя вальса.* ‖ *наз.* **мілагу́чнасць**, -і, *ж.*

**МІ́ЛАСЦІВЫ**, -ая, -ае. Які праяўляе міласць, прыхільнасць, добразычлівасць.

**МІ́ЛАСЦІНА**, -ы, *ж.* Ахвяраванне жабраку, беднаму. *Прасіць міласціну.*

**МІ́ЛАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Добрыя, велікадушныя адносіны. *Змяніць гнеў на м.* **2.** Ахвяраванне, дар. ◊ **Ваша (твая, яго) міласць** (уст.) — ужыв. як пачцівы зварот ніжэйшага да вышэйшага і пры ўпамінанні трэцяй асобы. **Міласці просім** (разм.) — ветлівае запрашэнне зрабіць што-н. **Па міласці** *каго* (іран.) — па чыёй-н. віне або дзякуючы каму-н. **Скажы на міласць** (разм.) — выказванне здзіўлення, непаразумення і пад. з якой-н. прычыны.

**МІЛАСЭ́РНАСЦЬ**, -і, *ж.* Гатоўнасць да дапамогі каму-н., спагада іншым. *Праявіць м.*

**МІЛАСЭ́РНЫ**, -ая, -ае. Які праяўляе міласэрнасць ці з'яўляецца вынікам міласэрнасці. *М. ўчынак.*

**МІ́ЛЕНЬКІ**, -ая, -ае. **1.** Прыемны на выгляд, прыгожы. *Міленькае дзіця.* **2.** Блізкі сэрцу, дарагі, каханы. *М. дружок.* **3.** *у знач. наз.* **міленькі**, -ага, *м.*, **міленькая**, -ай, *ж.* Каханы чалавек. **4.** Ужыв. як ласкавы або фамільярны зварот. *Прынясі дроўцаў, м.* ◊ **Як міленькі** (разм.) — без пярэчанняў, абавязкова. *Будзе працаваць як м.*

**МІЛІ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: адна тысячная доля той адзінкі, што называецца ў другой частцы слова, напр.: *міліампер, мілівольт, мілімікрон.*

**МІЛІГРА́М**, -а, *мн.* -ы, -гра́м *і* -аў, *м.* Адна тысячная частка грама. ‖ *прым.* **міліграмо́вы**, -ая, -ае.

**МІЛІМЕ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адна тысячная частка метра. ‖ *прым.* **міліметро́вы**, -ая, -ае.

**МІЛІМЕТРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* (разм.). Папера для чарчэння з клеткамі, роўнымі аднаму квадратнаму міліметру.

**МІЛІТАРЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Падпарадкаваць (падпарадкоўваць) эканоміку, прамысловасць і пад. мэтам мілітарызму. ‖ *наз.* **мілітарыза́цыя**, -і, *ж.*

**МІЛІТАРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Дзяржаўная палітыка ўзмацнення ваеннай магутнасці, нарошчвання ўзбраенняў і актывізацыі ваенных прыгатаванняў. ‖ *прым.* **мілітарысты́чны**, -ая, -ае *і* **мілітары́сцкі**, -ая, -ае.

**МІЛІТАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто праводзіць палітыку мілітарызму; прыхільнік мілітарызму. ‖ *прым.* **мілітары́сцкі**, -ая, -ае.

**МІЛІ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** У некаторых постсавецкіх краінах: сістэма дзяржаўных службаў і органаў для аховы грамадскага парадку, забеспячэння асабістай бяспекі грамадзян і іх маёмасці. **2.** *зб.* Работнікі гэтай установы. **3.** Назва народнага апалчэння ў некаторых краінах. ‖ *прым.* **міліцэ́йскі**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.) *і* **міліцы́йны**, -ая, -ае (да 3 знач.).

**МІЛІЦЫЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік міліцыі (у 1 знач.). ‖ *прым.* **міліцэ́йскі**, -ая, -ае *і* **міліцыяне́рскі**, -ая, -ае. *Міліцэйскія абавязкі. Міліцыянерскі шынель.*

**МІЛО́РД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ветліва-пачцівы зварот у англічан да мужчыны з прывілеяваных класаў.

**МІ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выклікае прыхільнасць да сябе; прыемны, абаяльны. *Мілая ўсмешка.* **2.** Блізкі сэрцу, любімы, дарагі. *Душу поўнілі мілыя краявіды.* **3.** *у знач. наз.* **мі́лы**, -ага, *м.*, **мі́лая**, -ай, *ж.* Каханы, каханая. *З мілым рай і ў будане* (прыказка).

**МІЛЬГАЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -гаці́ць; *незак.* **1.** Свяціць няроўным, перарывістым святлом; іскрыцца. *У далечыні мільгацелі агеньчыкі.* **2.** З'яўляцца ў полі зроку і знікаць, праносіцца перад вачыма. *Мільгацяць пералескі і нівы спелай збажыны.* **3.** *перан.* Хутка праносіцца ў памяці. *Думкі мільгацелі ў галаве.* ‖ *наз.* **мільгаце́нне**, -я, *н.*

**МІЛЬГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** З'яўляцца, паказвацца на кароткі час і знікаць. *Між дрэў мільгала постаць.* **2.** (*1 і*

*2 ас. звычайна не ўжыв.*). Хутка праносіцца адзін за адным. *Мільгалі тэлеграфныя слупы.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Тое, што і *мігаць* (у 3 і 4 знач.). *Мільгаюць агеньчыкі.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Праносіцца ў свядомасці. *Ужо не раз мільгала думка стаць ляснічым.* ‖ *аднакр.* **мільгану́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **мільга́нне**, -я, *н.*

**МІЛЬЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў. **1.** *ліч. кольк.* Лік і колькасць, роўная тысячы тысяч. *Мільён рублёў.* **2.** *м.* Вельмі вялікая колькасць чаго-н. ‖ *парадк.* **мільённы**, -ая, -ае.

**МІЛЬЯНÉР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Уладальнік багацця, якое ацэньваецца ў мільёны якіх-н. грашовых адзінак. *Нафтавы м.* ‖ *ж.* **мільянéрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.).

**МІЛЬЯ́РД**, -а, *М* -рдзе, *мн.* -ы, -аў. **1.** *ліч. кольк.* Лік і колькасць, роўная тысячы мільёнаў. **2.** *м.* Вельмі вялікая колькасць чаго-н. *Мільярды зорак.* ‖ *парадк.* **мілья́рдны**, -ая, -ае.

**МІЛЬЯРДЭ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Уладальнік багацця, якое ацэньваецца ў мільярды якіх-н. грашовых адзінак. ‖ *ж.* **мільярдэ́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.).

**МІЛЭ́ДЗІ**, *нескл., ж.* Ветлівы зварот у англічан да замужняй жанчыны з прывілеяваных класаў.

**МІ́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, міль, *ж.* Адзінка вымярэння адлегласці, якая мае неаднолькавае значэнне ў розных краінах. *Геаграфічная м. Марская м.*

**МІМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Акцёр, які іграе толькі сродкамі мімікі, без слоў.

**МІ́МА. 1.** *прысл.* Не спыняючыся, не затрымліваючыся або блізка, побач. *Ехаць м.* **2.** *прыназ. з Р.* Выражае прасторавыя адносіны: указвае на прадмет, асобу, каля якіх адбываецца рух. *Страляць м. цэлі.* ◊ **Прапусціць міма вушэй** (разм.) — не звярнуць увагі на тое, пра што гавораць.

**МІМАВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *міжвольны.* ‖ *наз.* **мімаво́льнасць**, -і, *ж.*

**МІМАЕ́ЗДАМ**, *прысл.* (разм.). Праездам, па дарозе. *М. пабываць у музеі.*

**МІМАЛЁТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які пралятае або праходзіць міма, не затрымліваючыся. **2.** Беглы, быстры. *М. позірк. Мімалётная сустрэча.* **3.** Які хутка знікае, хутка праходзіць, непрацяглы. *Мімалётнае шчасце.* ‖ *наз.* **мімалётнасць**, -і, *ж.*

**МІМАХО́ДАМ**, *прысл.* **1.** Праходзячы, праязджаючы міма. *М. зайсці куды-н.* **2.** *перан.* Між іншым, выпадкова. *М. сказаць.*

**МІ́МІКА**, -і, *ДМ* -міцы, *ж.* Рухі мышцаў твару, якія выражаюць унутраны стан. *Выразная м.* ‖ *прым.* **міміч́ны**, -ая, -ае. *Мімічная сцэна.*

**МІМІКРЫ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Прыпадабненне некаторых відаў жывёл і раслін да навакольнага асяроддзя з мэтай самазахавання.

**МІМІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Акцёр, які па-майстэрску валодае мімікай. ‖ *ж.* **міміс́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МІМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* міміка. **2.** Які мае адносіны да ігры мімаў, да пантамімы. *М. ансамбль.*

**МІМО́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -мóз, *ж.* **1.** Трапічная расліна сямейства бабовых, асобныя віды якой згортваюць лісцікі пры дотыку да іх. *Не мужчына, а м.* (перан.: пра крыўдлівую, сарамлівую асобу). **2.** Від паўднёвай акацыі сямейства бабовых з дробнымі жоўтымі кветкамі. *Падараваць мімозы.* ‖ *прым.* **мімóзавы**, -ая, -ае.

**МІ́НА**[1], -ы, *мн.* -ы, мін, *ж.* **1.** Снарад з выбуховым рэчывам, які закладаецца ў зямлю, пад ваду і інш. *Падарвацца на міне.* **2.** Снарад мінамёта. **3.** Тое, што і *тарпеда.* ‖ *прым.* **мі́нны**, -ая, -ае. *Міннае поле.*

**МІ́НА**[2], -ы, *мн.* -ы, мін, *ж.* Выраз твару. ◊ **Рабіць вясёлую міну пры дрэннай гульні** — за знешняй бесклапотнасцю старацца схаваць сваё незадавальненне, свае непрыемнасці.

**МІНАМЁТ**, -а, *М* -мёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гармата навеснага агню, якая страляе мінамі. ‖ *прым.* **мінамётны**, -ая, -ае.

**МІНАМЁТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Военнаслужачы мінамётных часцей і падраздзяленняў.

**МІНАНО́СЕЦ**, -нóсца, *мн.* -нóсцы, -нóсцаў, *м.* Ваенны карабель з моцным тарпедным узбраеннем.

**МІНАРЭ́Т**, -а, *М* -рэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вежа мячэці, з якой мусульман заклікаюць на малітву. ‖ *прым.* **мінарэ́тны**, -ая, -ае.

**МІНАШУКА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Апарат для пошуку закладзеных мін (у 1 знач.).

**МІНДА́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* **1.** Адзін арэх міндаля. **2.** Залоза ў глотцы, падобная па форме на міндальны арэх.

**МІНДА́ЛЬ**, -я *і* -ю, *м.* **1.** -я, *мн.* -і, -яў. Паўднёвае дрэва сямейства ружавых з пладамі ў выглядзе арэхаў авальнай формы. **2.** -ю, *зб.* Плады гэтага дрэва. ‖ *прым.* **минда́льны**, -ая, -ае. *М. арэх.*

**МІНДА́ЛЬНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., з кім* (разм.). **1.** Быць празмерна ласкавым, сентыментальным. **2.** Праяўляць непатрэбную мяккасць, паблажлівасць да каго-н. *Нельга м. з гультаямі.* ‖ *наз.* **мінда́льнічанне**, -я, *н.*

**МІНЕРА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыроднае неарганічнае крышталічнае рэчыва, якое з'яўляецца састаўной часткай зямной кары. ‖ *прым.* **мінера́льны**, -ая, -ае. *Мінеральныя воды.*

**МІНЕРАЛО́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне мінералогіі.

**МІНЕРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб мінералах. ‖ *прым.* **мінералагі́чны**, -ая, -ае.

**МІНЕРА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). Сталовая мінеральная вада.

**МІНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па міннай справе, па мініраванні і размініраванні. ‖ *прым.* **мінёрскі**, -ая, -ае.

**МІ́НІ. 1.** *нескл., н.* Спадніца, сукенка, паліто і пад. мінімальнай даўжыні. *Мода на м. прайшла. Насіць м.* **2.** *прым., нязм.* Максімальна кароткі (пра спадніцу, сукенку, паліто) ці вельмі маленькі. *М.-паліто. М.-аўтамабіль. М.-радыёпрыёмнік.* ○ **Міні-футбол** — камандная гульня, падобная на футбол, але з меншай колькасцю ўдзельнікаў на невялікіх закрытых пляцоўках.

**МІНІМА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Самы малы, найменшы ў шэрагу іншых; *проціл.* максімальны. *Мінімальнае асвятленне.* ‖ *наз.* **мініма́льнасць**, -і, *ж.*

**МІ́НІМУМ**, -у, *м.* **1.** Найменшая колькасць, найменшая велічыня ў шэрагу дадзеных; *проціл.* максімум. *Скараціць выдаткі да мінімуму.* **2.** Сукупнасць ведаў, навучальных прадметаў, абавязковых для спецыяліста, а таксама экзамены па гэтых прадметах. *Кандыдацкі м. М. па агратэхніцы.* **3.** *у знач. прысл.* Сама менш (пры словах, якія абазначаюць колькасць). *Каштуе м. пяцьсот рублёў.* **4.** *у знач. прым., нязм.* (ужыв. пасля азначаемага слова). Тое, што і *мінімальны. Праграма-м.* ○ **Пражытачны мінімум** — найменшая колькасць сродкаў, якая неабходна для існавання.

**МІНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак. і незак., што.* Залажыць (закладваць) міны для ўзрыву чаго-н. ‖ *зак.* таксама **замініраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны. ‖ *наз.* **мініраванне**, -я, *н.*

**МІНІ́СТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Член урада, які стаіць на чале міністэрства (у 1 знач.). *М. замежных спраў.* ‖ *прым.* **мініст́эрскі**, -ая, -ае.

**МІНІСТЭ́РСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Орган дзяржаўнага кіравання асобнай сферы дзейнасці. *М. культуры.* **2.** *зб.* У сістэме парламентарызму: састаў міністраў дадзенага ўрада. ‖ *прым.* **міністэ́рскі**, -ая, -ае.

**МІНІЯЦЮ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -цю́р, *ж.* **1.** Невялікі малюнак у фарбах у старадаўнім рукапісе, кнізе. **2.** Невялікая карціна вельмі тонкай работы. **3.** Мастацкі твор малой формы, завершаны па форме і думцы. *Тэатр мініяцюр.* ◊ **У мініяцюры** — у зменшаным памеры. ‖ *прым.* **мініяцю́рны**, -ая, -ае.

**МІНІЯЦЮ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* мініяцюра. **2.** Маленькі і вытанчаны. *Мініяцюрная шкатулка.* ‖ *наз.* **мініяцю́рнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**МІНІЯЦЮРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Мастак, які малюе мініяцюры. **2.** Аўтар мініяцюр (у 3 знач.). ‖ *ж.* **мініяцюры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**МІНО́ГА**, -і, *ДМ* -нóзе, *мн.* -і, -нóг, *ж.* Водная прымітыўная пазваночная жывёліна сямейства міногавых са змеепадобным целам. *Марская м.* ‖ *прым.* **мінóгавы**, -ая, -ае. *Сямейства міногавых* (наз.).

**МІНО́Р**, -у, *м.* **1.** Музычны лад, акорд якога грунтуецца на малой тэрцыі (спец.). **2.** *перан.* Сумны, прыгнечаны настрой (разм.). *Быць у мінорах.* ‖ *прым.* **мінóрны**, -ая, -ае. *М. настрой.*

**МІНУЛАГО́ДНІ**, -яя, -яе. Які мае адносіны да мінулага года, зроблены, праведзены ў мінулым годзе. *М. фестываль.*

**МІНУ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўжо прайшоў, мінуў. *Мінулыя гады.* **2.** *у знач. наз.* **міну́лае**, -лага, *н.* Тое, што прайшло, адышло; былое. *Успомніць мінулае.*

**МІ́НУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Знак у выглядзе гарызантальнай рыскі (–) для абазначэння аднімання або адмоўнай велічыні ў матэматыцы. **2.** *нескл.* Паміж дзвюма лічбамі абазначае, што другая лічба аднімаецца ад першай. *Пяць м. тры.* **3.** Пры ўказанні на тэмпературу паветра абазначае: ніжэй нуля. *Сёння м. пяць.* **4.** *перан.* Недахоп, адмоўны бок (разм.). *Праект мае шмат мінусаў.* ‖ *прым.* **мі́нусавы**, -ая, -ае (да 3 і 4 знач.). *Мінусавая тэмпература.*

**МІНУ́СКУЛЫ**, -аў, *адз.* -кул, -а, *м.* (спец.). Дробныя літары ў почырках старажытнай пісьменнасці. ‖ *прым.* **міну́скульны**, -ая, -ае. *Мінускульнае пісьмо.*

**МІНУ́ТА**, -ы, *ДМ* -ну́це, *мн.* -ы, -ну́т, *ж.* **1.** Адзінка вымярэння часу, роўная 1/60 гадзіны і якая складаецца з 60 секунд. *Без дваццаці мінут чатыры.* **2.** Кароткі прамежак часу, імгненне. *Мінуты радасці.* **3.** Адзінка вымярэння вугла і дугі, роўная 1/60 градуса (спец.). ◊ **Мінута маўчання** — знак выказвання жалю з прычыны чыёй-н. смерці. **Мінута ў мінуту** — абсалютна дакладна. **На адну мінуту** (разм.) — ненадоўга. **У адну мінуту** — вельмі хутка. ‖ *памянш.-ласк.* **міну́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 1 і 2 знач.). *Пачакайце мінутку.* ‖ *прым.* **міну́тны**, -ая, -ае. *Мінутная стрэлка.*

**МІНУ́ЎШЧЫНА**, -ы, *ж.* Тое, што было раней, што даўно прайшло. *Сівая м.*

**МІНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не́цца; *зак.* **1.** Прайсці, скончыцца. *Мінулася пара дажджоў.* **2.** Застацца ззаду, скончыцца. *Мінулася невялічкая вёсачка.*

**МІНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** *каго-што.* Прайсці, праехаць каля каго-, чаго-н., пакінуўшы яго ззаду або збоку. *М. азярко.* **2.** пераважна з адмоўем, *чаго.* Пазбегнуць чаго-н. *Не м. бяды* (безас.). *Горш, калі баішся: і ліха не мінеш, і надрыжышся.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Скончыцца, прайсці (пра час, пару, падзеі і пад.). *Вось і лета мінула.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каму.* Споўніцца (пра ўзрост). *Яму мінула сем гадоў.*

**МІНУ́ЧЫ**, -ая, -ае. Такі, які хутка праходзіць, мінае; недаўгавечны. *Шчаслівы час — м.*

**МІР**[1], -у, *м.* **1.** Адсутнасць варожасці, вайны; згода. *Барацьба народаў за м. Жыць у міры. У сям'і м.* **2.** Пагадненне ваюючых бакоў аб канчатковым спыненні ваенных дзеянняў. *Падпісаць м.* ‖ *прым.* **мі́рны**, -ая, -ае.

**МІР**[2], -а, *м.* (уст.). Сельская грамада. *Мірам будавалі пагарэльцу хату.* ◊ **Што ўсяму міру, тое і бабінаму сыну** (разм.) — што ўсім, тое і каму-н.

**МІ́РА**[1], -а, *н.* Пахучы алей, які ўжыв. ў хрысціянскіх царкоўных абрадах. ◊ **Адным мірам мазаны** (разм., неадабр.) — пра людзей з аднолькавымі недахопамі.

**МІ́РА**[2], -ы, *ж.* Духмяная смала, якая знаходзіцца ў кары трапічных дрэў сямейства бурзеравых, выкарыстоўваецца ў медыцыне і парфумерыі. ‖ *прым.* **мі́равы**, -ая, -ае.

**МІРАБЕ́ЛЬ**, -я *і* -ю, *м.* **1.** -я, *мн.* -і, -яў. Пладовае дрэва сямейства ружавых, падобнае на сліву. **2.** -ю, *зб.* Дробныя жоўтыя плады гэтага дрэва. ‖ *прым.* **мірабе́левы**, -ая, -ае *і* **мірабе́льны**, -ая, -ае.

**МІРАВЫ́**[1], -а́я, -о́е. **1.** Звязаны з устанаўленнем мірных адносін паміж спрэчнымі бакамі. *М. суд* (дарэвалюцыйны суд, дзе разбіралі дробныя грамадзянскія і крымінальныя справы). **2.** *у знач. наз.* **мірава́я**, -о́й, *ж.* Мірнае вырашэнне спрэчкі без суда. *Пайсці на міравую.*

**МІРАВЫ́**[2], -а́я, -о́е (разм.). Вельмі добры, цудоўны. *М. фільм.*

**МІРАЕ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Пагардлівая назва заможнага селяніна, які пастаянна карыстаецца наёмнай працай. ‖ *прым.* **мірае́дскі**, -ая, -ае.

**МІРА́Ж**, -у́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Аптычная з'ява ў атмасферы, пры якой на гарызонце становяцца бачнымі адлюстраванні розных аддаленых наземных прадметаў. *М. у пустыні.* **2.** *перан.* Тое, што не адпавядае рэчаіснасці, што не можа здзейсніцца. ‖ *прым.* **міра́жны**, -ая, -ае.

**МІРАЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які любіць мір, згоду, заснаваны на імкненні захаваць мір; дружалюбны. *Міралюбівая палітыка. М. чалавек.* ‖ *наз.* **міралюбі́васць**, -і, *ж.*

**МІРАЛЮ́БНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *міралюбівы.* ‖ *наз.* **міралю́бнасць**, -і, *ж.*

**МІРАПАМА́ЗАННЕ**, -я, *н.* Хрысціянскі царкоўны абрад, які заключаецца ў крыжападобным памазанні мірам.

**МІРАТВО́РАЦ**, -рца, *мн.* -рцы, -рцаў, *м.* Той, хто садзейнічае ўстанаўленню міру, спыненню войнаў, ліквідацыі варожасці. ‖ *прым.* **міратво́рчы**, -ая, -ае.

**МІРТ**, -а, *М* мі́рце, *мн.* -рты, -ртаў, *м.* Паўднёвая вечназялёная куставая або дрэвавая расліна сямейства міртавых з пахучымі белымі кветкамі. ‖ *прым.* **мі́ртавы**, -ая, -ае. *М. вянок. Сямейства міртавых* (наз.).

**МІ́РЫЦЦА**, міру́ся, мі́рышся, мі́рыцца; *незак.* **1.** *з кім* і *без дап.* Спыняць сварку, варожыя адносіны, пачынаць жыць у згодзе. **2.** *з чым.* Цярпіма адносіцца да чаго-н. *М. са сваім становішчам.* ‖ *зак.* **памі́рыцца**, -міру́ся, -мі́рышся, -мі́рыцца (да 1 знач.) *і* **прымі́рыцца**, -міру́ся, -мі́рышся, -мі́рыцца; *наз.* **прымірэ́нне**, -я, *н.*

**МІ́РЫЦЬ**, міру́, мі́рыш, мі́рыць; *незак., каго-што.* Наладжваць мірныя адносіны паміж кім-, чым-н. *М. суседзяў. М. варожыя бакі.* ‖ *зак.* **памі́рыць**, -міру́, -мі́рыш, -мі́рыць *і* **прымі́рыць**, -міру́, -мі́рыш, -мі́рыць; -мі́раны; *наз.* **прымірэ́нне**, -я, *н.*

**МІРЫЯ́ДЫ**, -аў. Незлічона вялікая колькасць. *М. зорак.*

**МІС**, *нескл., ж.* Зварот да незамужняй жанчыны ў Англіі, Амерыцы (ставіцца звычайна перад прозвішчам або імем).

**МІ́СА**, -ы, *мн.* -ы, міс, *ж.* Пасудзіна для ежы, вялікая міска. *На абед паставілі місу клёцак.*

**МІ́СІС**, *нескл., ж.* Зварот да замужняй жанчыны ў Англіі, Амерыцы (ставіцца звычайна перад прозвішчам, імем).

**МІ́СІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* **1.** Адказная роля, высокае прызначэнне каго-н. *Вялікая м. вучонага.* **2.** Пастаяннае дыпламатычнае прадстаўніцтва пры якой-н. дзяржаве на чале з пасланнікам. **3.** Дыпламатычная дэлегацыя спецыяльнага прызначэння. *М. дружбы* (перан.). *М. добрай волі* (перан.). **4.** Місіянерская арганізацыя. *Папская м.*

**МІСІЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Духоўная асоба, якая пасылаецца царквой для прапаганды свайго веравызнання сярод нехрысціянскага насельніцтва. ‖ *ж.* **місіяне́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **місіяне́рскі**, -ая, -ае.

**МІСІЯНЕ́РСТВА**, -а, *н.* Дзейнасць місіянера.

**МІ́СКА**, -і, *ДМ* мі́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Шырокая і глыбокая пасудзіна круглай формы для яды. ‖ *памянш.* **мі́сачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**МІ́СТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Зварот да мужчыны ў Англіі, Амерыцы (ставіцца звычайна перад імем, прозвішчам).

**МІ́СТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, схільны да містыкі, прыхільнік містыцызму.

**МІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Вера ў існаванне надпрыродных, таямнічых сіл і магчымасць зносін з імі чалавека. **2.** Нешта загадкавае, чаго нельга растлумачыць (разм.). *Усе падзеі апошніх дзён — нейкая м.* ‖ *прым.* **місты́чны**, -ая, -ае.

**МІСТЫФІКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Наўмысна ўвесці (уводзіць) каго-н. у зман.

**МІСТЫФІКА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца містыфікацыямі. ‖ *прым.* **містыфіка́тарскі**, -ая, -ае.

**МІСТЫФІКА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Наўмыснае ўвядзенне каго-н. у зман. *Ахвяра містыфікацыі.*

**МІСТЫЦЫ́ЗМ**, -у, *м.* Філасофскае вучэнне, форма рэлігійна-ідэалістычнага светапогляду, заснаванага на эмоцыях, інтуіцыі і ірацыяналізме, а таксама наогул схільнасць да містыкі (у 1 знач.). ‖ *прым.* **місты́чны**, -ая, -ае.

**МІСТЭ́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Сярэдневяковая драма на біблейскія тэмы.

**МІ́ТАЛЬШПІЛЬ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* (спец.). Сярэдняя стадыя шахматнай партыі паміж дэбютам і эндшпілем.

**МІТКА́ЛЬ**, -ю́, *м.* Гатунак суравой баваўнянай тканіны палатнянага перапля-

*Вымя набухла.* || *незак.* **набухáць**, -áе. || *наз.* **набухáнне**, -я, *н.*

**НАБУЯ́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* (разм.). Уволю, многа пабуяніць.

**НАБУЯ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *зак.* (разм.). Буянячы, нарабіць чаго-н. дрэннага.

**НАБЫ́ТАК**, -тку, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Маёмасць, уласнасць. *Агульны н. Н. гаспадара.* **2.** Тое, што набыта, прыдбана; скарб. *Небагаты н.* **3.** Тое, што набыта ў выніку вучобы, жыццёвай і працоўнай практыкі. *Мастацкія набыткі.*

**НАБЫ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая набывае, купляе што-н.

**НАБЫ́ЦЦА**, -бýдуся, -бýдзешся, -бýдзецца; -бýдзься; *зак.* (разм.). **1.** Прабыць, пабыць дзе-н. удосталь. *Н. ў лесе.* **2.** Пабыць доўгі час у якім-н. стане. *Н. ў бядзе.*

**НАБЫ́ЦЬ**[1], -бýду, -бýдзеш, -бýдзе; -бы́ў, -былá, -лó; -бýдзь; *зак.* **1.** *каго-што.* Стаць уладальнікам чаго-н. *Н. кватэру.* **2.** *што.* Атрымаць спецыяльнасць. *Н. прафесію.* **3.** *што.* Зрабіцца якім-н. па знешнім выглядзе. *Пакой набыў утульны выгляд.* **4.** *што.* Заслужыць, здабыць прызнанне. *Н. аўтарытэт.* **5.** *што.* Захварэць чым-н. (разм.). *Н. гастрыт.* || *незак.* **набывáць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **набыццё**, -я́, *н.*

**НАБЫ́ЦЬ**[2], -бýду, -бýдзеш, -бýдзе; -бы́ў, -былá, -лó; -бýдзь; *зак.* (разм.). Тое, што і *набыцца* (у 1 знач.), ужыв. звычайна толькі з адмоўем. *Доўга ты тут не набудзеш.*

**НАБЭ́ДРЫКІ** *гл.* набедрыкі.

**НАБЭ́РСАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., чаго* (разм.). Наблытаць у нейкай колькасці. *Н. нітак.*

**НАБЯГА́ЦЬ** *гл.* набегчы.

**НАБЯЛІ́ЦЦА** *гл.* бяліць.

**НАБЯЛІ́ЦЬ** *гл.* бяліць.

**НАБЯРЭ́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Размешчаны на беразе, каля берага. *Н. бульвар.* **2.** *у знач. наз.* **набярэ́жная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Бераг, умацаваны сцяной з граніту, каменю і інш., а таксама вуліца, якая ідзе ўздоўж такога берага. *Дом на набярэжнай.*

**НАВА...** (*гл.* **нова...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «нова...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *навагодні, навамодны.*

**НАВАБРА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Той, хто толькі што прызваны на ваенную службу. || *прым.* **навабрáнскі**, -ая, -ае.

**НАВА́ГА**, -і, *ДМ* -вáзе, *ж.* Паўночная марская рыба сямейства трасковых. || *прым.* **навáгавы**, -ая, -ае.

**НАВАГО́ДНІ**, -яя, -яе. Які мае адносіны да Новага года, да яго святкавання. *Навагодняя ёлка.*

**НАВАДЗІ́ЦЬ**, -ваджý, -вóдзіш, -вóдзіць; вадзіў, -дзіла; *зак., каго.* **1.** Прывесці многа каго-н. куды-н. **2.** Павадзіць каго-н. доўгі час. *Н. па лесе.*

**НАВАДНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніцца *і* -вóдніцца; *зак.* Запоўніцца вельмі вялікай колькасцю каго-, чаго-н. *Рынак навадніўся імпартнымі таварамі.* || *незак.* **наваднáцца**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́ецца.

**НАВАДНІ́ЦЬ**, -вадню́, -ніш *і* -вóдніш, -ніць *і* -вóдніць; -вóднены; *зак., што.* Запоўніць вельмі вялікай колькасцю каго-, чаго-н. *Н. рынак таварамі.* || *незак.* **наваднáць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **навадне́нне**, -я, *н.*

**НАВАДНЫ́**, -áя, -óе. **1.** *гл.* навесці. **2.** Які наводзіць на правільны адказ, дапамагае знайсці яго. *Навадное пытанне.*

**НАВА́ЖЫЦЦА**, -вáжуся, -вáжышся, -вáжыцца; *зак., з інф.* Намерыцца нешта зрабіць, рашыцца на што-н. *Н. сказаць праўду. Н. пераехаць у другі горад.* || *незак.* **навáжвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАВА́ЖЫЦЬ**[1], -вáжу, -вáжыш, -вáжыць; *зак., чаго.* Узважваючы, нарыхтаваць у якой-н. колькасці. *Н. тону бульбы.* || *незак.* **навáжваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАВА́ЖЫЦЬ**[2], -вáжу, -вáжыш, -вáжыць; *зак., з інф.* Намерыцца што-н. рабіць або зрабіць; вырашыць. *Н. правесці конкурс дзіцячых малюнкаў. Н. перайсці на іншую работу.*

**НАВАЗІ́ЦЦА**, -важýся, -вóзішся, -вóзіцца; *зак.* (разм.). **1.** Тое, што і *навазіць* (у 1 знач.). *Дзе ж тут навозішся дроў.* **2.** Уволю наездзіцца, накатацца.

**НАВАЗІ́ЦЬ**, -важý, -вóзіш, -вóзіць; -вóжаны; *зак.* **1.** *чаго.* Прывезці за некалькі прыёмаў вялікую колькасць чаго-н. *Н. пяску і гліны.* **2.** *каго.* Уволю павазіць, пакатаць. *Н. на санках.* || *незак.* **навóжваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**НАВАКАІ́Н**, -у, *м.* Прэпарат, які ўжыв. для мясцовага абязбольвання і для лячэння некаторых захворванняў. || *прым.* **навакаíнавы**, -ая, -ае.

**НАВАКО́Л**. **1.** *прысл.* Тое, што і *навокал* (у 1 знач.). **2.** *прыназ. з Р.* Тое, што і *навокал* (у 2 знач.).

**НАВАКО́ЛА**. **1.** *прысл.* Тое, што і *навокал* (у 1 знач.). **2.** *прыназ. з Р.* Тое, што і *навокал* (у 2 знач.).

**НАВАКО́ЛЛЕ**, -я, *н.* **1.** Мясцовасць, якая прылягае, прымыкае да чаго-н. *Н. горада. Вада затапіла ўсё н.* **2.** *перан.* Акружаючае асяроддзе. *Літаратурнае н.*

**НАВАКО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца або жыве ў наваколлі; адбываецца навокал каго-, чаго-н. *Навакольная мясцовасць. Навакольныя людзі. Навакольныя гукі.* **2.** *у знач. наз.* **навакóльнае**, -ага, *н.* Тое, што знаходзіцца навокал каго-, чаго-н. *Любавацца навакольным.* **3.** *у знач. наз.* **навакóльныя**, -ых. Людзі, якія акружаюць каго-н. *Абыякавы да навакольных.*

**НАВАКСАВА́ЦЬ** *гл.* ваксаваць.

**НАВАКСО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *ваксаваць.*

**НАВА́Л**, -у, *м.* **1.** *гл.* наваліць[1]. **2.** Куча чаго-н. наваленага. *Ліквідаваць н. трэсак.* **3.** Дакрананне корпусам да борта іншага судна або прычала ў выніку няўдалага манеўру (спец.).

**НАВА́ЛА**, -ы, *ж.* **1.** Нашэсце ворага. *Адолець навалу. Фашысцкая н.* **2.** Бяда, няшчасце. *Страшэнная н.* **3.** Вялікая колькасць каго-, чаго-н. *Н. работы.* **4.** *перан.* Нешта цяжкае, непрыемнае, што навісае над чалавекам. *Н. безвыходнасці.*

**НАВА́ЛАМ**, *прысл.* **1.** Без парадку, кучай. *Ляжаць н.* **2.** Натоўпам, вялікай масай (разм.). *Лезці н.* **3.** У вялікай колькасці (разм.). *Грыбоў — н.*

**НА́ВАЛАЧ**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Хмары, туман, смуга. *Не паспела распагодзіцца, і зноў пайшла н.* **2.** Той, хто прыйшоў, з'явіўся аднекуль; не тутэйшы (груб.). *Н. з усяго свету.* **3.** *зб.* Зброд, варожыя людзі (пагард.). *Фашысцкая н.* **4.** *перан.* Тое, што і *напасць. Што ж гэта за н. такая!*

**НА́ВАЛАЧКА** *гл.* навалочка.

**НАВАЛАЧЫ́**, -лакý, -лачэ́ш, -лачэ́; -лачóм, -лачацé, -лакýць; навалóк, -лаклá, -лó; -лачы́; -лóчаны; *зак., чаго* (разм.). **1.** Прыцягнуць, прынесці за некалькі прыёмаў у значнай колькасці. *Н. галля.* **2.** *каго.* Прывесці, навесці ў вялікай колькасці куды-н. (неадабр.). *Н. незнаёмых.* **3.** *пераважна безас.* Зацягнуць, закрыць. *З захаду навалакло хмар.* || *незак.* **навалакáць**, -áю, -áеш, -áе.

**НАВАЛАЧЫ́СЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -лачэ́цца; навалóкся, -лаклáся, -лóся; *зак.* (разм.). **1.** Прыйсці куды-н. у вялікай колькасці (пагард.). *Навалаклося народу ў хату.* **2.** Насунуўшыся, закрыць, засланіць сабою. *Навалакліся чорныя хмары.*

**НАВАЛАЧЫ́ЦЦА**, -лачýся, -лóчышся, -лóчыцца; -лачы́ся; *зак.* (разм.). **1.** Стаміцца, носячы што-н. **2.** Нахадзіцца, нацягацца дзе-н.; стаміцца, многа ходзячы.

**НАВАЛІ́ЦЦА**, -валю́ся, -вáлішся, -вáліцца; *зак.* **1.** Налегчы сваім цяжарам на што-н. *Н. на стол.* **2.** *перан.* Дружна ўзяцца за якую-н. работу; з прагнасцю накінуцца на што-н. *Н. на вучобу. Хлопцы дружна наваліліся на клёцкі.* **3.** Напасці, накінуцца на каго-, што-н. *Н. на пазіцыі ворага. Наваліліся ўсе на аднаго.* **4.** Падаючы, насыпацца (пра многае; разм.). *Навалілася яблыкаў за ноч.* **5.** *перан.* Змарыць (пра сон, спёку і пад.). *Сон наваліўся.* **6.** *перан.* Спасцігнуць, нечакана напаткаць. *Хвароба навалілася.* **7.** *перан.* Нахлынуць, сабрацца ў вялікай колькасці. *Пад канец тыдня навалілася столькі работы.* **8.** Накінуцца на каго-н. з лаянкай (разм.). *Ён мог нізашто н. на чалавека.* || *незак.* **навáльвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАВАЛІ́ЦЬ**[1], -валю́, -вáліш, -вáліць; -вáлены; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Налажыць, узваліць што-н. на каго-, што-н. *Н. камень на дзежку з агуркамі. Н. сучча на агонь.* **2.** *перан., што на каго (што).* Ускласці на каго-н. многа работы, абавязкаў. *Н. усю работу на аднаго.* **3.** *чаго.* Накідаць у беспарадку многа чаго-н. *Н. кучу дроў.* **4.** *безас., што* і *чаго.* Напáдаць у вялікай колькасці (пра лісце, снег і пад.). *Навaліла снегу за ноч.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., каго-ча-*

*го.* Прыйсці, сабрацца ў вялікай колькасці. *Наваліла* (безас.) *народу на сход.* ‖ *незак.* **нава́льваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—4 знач.). ‖ *наз.* **нава́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* (да 3 знач.), **нава́льванне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.) *і* **нава́л**, -у, *м.* (да 1 і 3 знач.; спец.). *Навал вугалю.* ‖ *прым.* **нава́лачны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.; спец.) *і* **нава́льны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.; спец.). *Навалачны пункт. Навальны спосаб пагрузкі.*

**НАВАЛІ́ЦЬ**[2], -валю́, -ва́ліш, -ва́ліць; -ва́лены; *зак., чаго.* Прыгатаваць шляхам валення ў вялікай колькасці. *Н. валёнак.*

**НАВАЛО́ЧКА** *і* **НА́ВАЛАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Чахол для падушкі. *Палатняная н.*

**НАВАЛЬНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* **1.** Атмасферная з'ява — дождж з громам і маланкай. *Ліпеньскія навальніцы.* **2.** *перан.* Грозныя падзеі. *Ваенная н.* **3.** *перан.* Бяда, небяспека. ‖ *прым.* **навальні́чны**, -ая, -ае.

**НАВАЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* (разм.). Уволю, многа паваляцца. *Н. ў духмяным сене.*

**НАВАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., чаго* (разм.). Паваліць, перакуліць многа чаго-н.

**НАВАМО́ДНЫ**, -ая, -ае. Які адпавядае новай, апошняй модзе; які стаў вельмі модным. *Навамодная сукенка. Н. танец.*

**НАВА́Р**, -у, *м.* **1.** Вадкасць, насычаная рэчывамі тых прадуктаў, што ў ёй варацца, а таксама тлушч, які ўсплывае наверх пры варцы стравы з жывёльных прадуктаў. *Мясны н.* **2.** *перан.* Прыбытак, выгада ад чаго-н. *Вялікага навару тут не атрымаеш.*

**НАВАРАЖЫ́ЦЬ**, -ражу́, -ро́жыш, -ро́жыць; -ро́жаны; *зак., што* і *чаго* (разм.). Варожачы, прадказаць. *Н. доўгае жыццё.*

**НА́ВАРАТ**. У выразе: **другім наваратам** — другі раз. *Ворага перамаглі другім наваратам.*

**НАВА́РВАННЕ** *гл.* наварыць.

**НАВА́РКА** *гл.* наварыць.

**НАВАРНЫ́** *гл.* наварыць.

**НАВАРО́ЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* **1.** Абярнуць, паваліць на бок вялікую колькасць чаго-н. *Буран наварочаў многа дрэў.* **2.** Накідаць у вялікай колькасці (разм.). *Н. кучу камення.* **3.** Наваліць чаго-н. без парадку. *Н. горы зямлі.* ‖ *незак.* **навaро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАВАРО́ЧВАЦЦА** *гл.* навярнуцца.

**НАВАРО́ЧВАЦЬ** *гл.* наварочаць, навярнуць.

**НАВАРСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., што.* Зрабіць варсістым.

**НАВА́РЫСТЫ**, -ая, -ае. З густым наварам. *Н. боршч.* ‖ *наз.* **нава́рыстасць**, -і, *ж.*

**НАВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ва́рыцца; *зак.* Падоўжыцца шляхам наваркі, наварвання (пра металічныя рэчы). *Лямеш добра наварыўся.*

**НАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -ва́рыш, -ва́рыць; -ва́раны; *зак.* **1.** *чаго.* Варачы, нагатаваць у патрэбнай колькасці; згатаваць. *Н. варэння.* **2.** *чаго.* Наплавіць у нейкай колькасці. *Н. сталі.* **3.** *што.* Апрацоўваючы металічны прадмет, прыварыць кавалак металу. *Н. нарог.* ‖ *незак.* **нава́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **нава́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 3 знач.) *і* **нава́рванне**, -я, *н.* (да 3 знач.). ‖ *прым.* **наварны́**, -а́я, -о́е (да 3 знач.; спец.). *Наварная вось.*

**НАВАСЕ́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* Жыхар, які пасяліўся на новым месцы.

**НАВАСЕ́ЛЛЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Перасяленне, пасяленне на новае месца, у новае жыллё. *Радасць наваселля.* **2.** Свята з выпадку пасялення на новым месцы; уваходзіны. *Справіць н.* ‖ *прым.* **навасе́льны**, -ая, -ае.

**НАВАСЁЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, хто пасяліўся ў новым доме або кватэры. *Першыя навасёлы.* **2.** Новы пасяленец, жыхар, які аднекуль прыехаў. *Радасна сустрэць навасёлаў.* ‖ *ж.* **навасёлка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак.

**НАВАСКАВА́ЦЬ** *гл.* васкаваць.

**НАВАСПЕ́ЧАНЫ**, -ая, -ае (іран., жарт.). Нядаўна створаны, арганізаваны або які нядаўна стаў кім-н., атрымаў якую-н. пасаду, званне. *Н. праект. Н. студэнт.*

**НАВАСТРЫ́ЦЬ** *гл.* вастрыць.

**НА́ВАТ**, *часц.* **1.** Ужыв. для ўзмацнення сэнсавай выразнасці таго слова, да якога адносіцца. *Прыйшлі на вяселле н. з далёкіх вёсак.* **2.** *у знач. злуч.* Далучае члены сказа і сказы са знач. удакладнення, дабаўлення. *Стаяла спякота, н. лужыны высахлі.*

**НАВА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто ўносіць і ажыццяўляе новыя, прагрэсіўныя ідэі, прыёмы ў якой-н. галіне дзейнасці. *Наватары вытворчасці.* ‖ *ж.* **нава́тарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **нава́тарскі**, -ая, -ае.

**НАВА́ТАРСТВА**, -а, *н.* **1.** Дзейнасць наватараў. *Н. ў тэхніцы.* **2.** Усё новае, прагрэсіўнае, што ўводзіцца ў якой-н. галіне дзейнасці. *Н. Алеся Разанава ў паэзіі.* ‖ *прым.* **нава́тарскі**, -ая, -ае.

**НАВА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Нешта новае, новаўвядзенне. **2.** У юрыспрудэнцыі — спыненне ранейшага абавязацельства па дамоўленасці бакоў і замена яго новым абавязацельствам (спец.).

**НАВАШЧЫ́ЦЬ** *гл.* вашчыць.

**НАВАЯВА́ЦЦА**, -ваю́юся, -ваю́ешся, -ваю́ецца; -ваю́йся; *зак.* (разм.). **1.** Многа, доўга павяваць. *Хопіць мне, навяваўся за пяць гадоў.* **2.** Пазбавіцца сілы, моцы на вайне; адваявацца.

**НАВАЯВА́ЦЬ**, -ваю́ю, -ваю́еш, -ваю́е; -ваю́й; *зак.* (разм.). Паваяваць некаторы час. *З такой зброяй доўга не наваюеш.*

**НАВАЯ́ЎЛЕНЫ**, -ая, -ае (іран.). Які ўпершыню дзе-н. з'явіўся, праявіў сябе. *Н. лідар.* ‖ *наз.* **навая́ўленасць**, -і, *ж.*

**НАВЕ́ДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Зайсці, заехаць да каго-н., куды-н., пабываць дзе-н. *Н. да сяброў.* ‖ *незак.* **наве́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАВЕ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Пабываць дзе-н. у каго-н., прыйсці або прыехаць куды-н., да каго-н. *Н. родных. Н. хворага.* ‖ *незак.* **наве́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **наве́дванне**, -я, *н.*

**НАВЕ́ДВАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто прыходзіць куды-н. з якой-н. мэтай, наведвае каго-, што-н. *Пастаянны н. бібліятэкі.* ‖ *ж.* **наве́двальніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **наве́двальніцкі**, -ая, -ае.

**НАВЕ́ДВАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* наведаць. **2.** Колькасць наведванняў. *Добрае н. заняткаў.*

**НАВЕ́ЗЦІ**, -вязу́, -вязе́ш, -вязе́; -вязём, -везяце́, -вязу́ць; навёз, -ве́зла *і* -вязла́, -ве́зла *і* -вязло́; -вязі́; -ве́зены; *зак., каго-што.* Прывезці ў вялікай колькасці. *Н. розных падарункаў.* ‖ *незак.* **наво́зіць**, -во́жу, -во́зіш, -во́зіць.

**НАВЕ́К** *і* **НАВЕ́КІ**, *прысл.* Назаўсёды, на ўсё жыццё. *Навек разам! Бывай навекі!*

**НАВЕ́ЛА**[1], -ы, *мн.* -ы, -ве́л, *ж.* Невялікае апавяданне звычайна пра якую-н. адну падзею з нечаканым фіналам. *Навелы Якуба Коласа.* ‖ *прым.* **навелісты́чны**, -ая, -ае.

**НАВЕ́ЛА**[2], -ы, *мн.* -ы, -ве́л, *ж.* (спец.). Пазнейшае дапаўненне да якога-н. зводу законаў, статута і пад. *Падатковыя навелы.*

**НАВЕЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пісьменнік, аўтар навел[1]. ‖ *ж.* **навелі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**НАВЕРАДЗІ́ЦЦА**, -вераджу́ся, -вяро́дзішся, -вяро́дзіцца; *зак.* Стаміцца, натрудзіцца да стомы. *Рука навярэдзілася.*

**НАВЕРАДЗІ́ЦЬ**, -вераджу́, -вяро́дзіш, -вяро́дзіць; -вяро́джаны; *зак., што.* Працяглай працай прычыніць боль чаму-н. *Навярэдзіў рукі.* ‖ *незак.* **навяро́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАВЕРБАВА́ЦЬ**, -вярбу́ю, -вярбу́еш, -вярбу́е; -вярбу́й; -вербава́ны; *зак., каго-што.* Завербаваць у нейкай колькасці. *Н. рабочых на будоўлю.* ‖ *незак.* **навярбо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАВЕ́РСЕ**. **1.** *прысл.* На верхняй частцы чаго-н., зверху. *Яблыкі на яблыні засталіся толькі н.* **2.** *прысл.* У вышыні, уверсе. *Н. кружылі буслы.* **3.** *прысл., перан.* У вышэйшай інстанцыі (разм.). *Рашэнне было прынята н.* **4.** *прыназ. з Р.* Выражае прасторавыя адносіны: ужыв. пры абазначэнні прадмета, на верхняй частцы якога размяшчаецца што-н. *Сядзець н. воза.*

**НАВЕ́РХ**, *прысл.* **1.** На верхнюю частку чаго-н., у напрамку да верху чаго-н. *Падняцца н. Смала выступіла н.* **2.** *прыназ. з Р.* Выражае прасторавыя адносіны: ужыв. пры абазначэнні прадмета, асобы, на верхнюю частку якіх ці паверх якіх накіравана дзеянне. *Накінуць плашч н. сукенкі.*

**НАВЕ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дах на слупах ці іншых апорах, які ахоўвае ад сонца, непагоды. *Трава сохне пад навесам.* **2.** Тое,

што навісае зверху; частка чаго-н., якая выступае, навісае. *Н. скалы.*

**НАВЕ́СІЦЬ**, -ве́шу, -ве́сіш, -ве́сіць; -ве́шаны; *зак., што.* **1.** Павесіць, прымацаваўшы да чаго-н. або надзеўшы на што-н. *Н. дзверы.* **2.** У спартыўных гульнях: накіраваць мяч у бок варот або падняць над сеткай. ‖ *незак.* **наве́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **наве́шванне**, -я, *н.*

**НАВЕ́СНЫ**, -ая, -ае. Такі, пры якім снарады, кулі, апісваючы ў паветры крутую дугу, падаюць зверху. *Н. агонь.*

**НАВЕ́СЦІ**, -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзём, -ведзяце́, -вяду́ць; навёў, -вяла́, -ло́; навядзі́; -ве́дзены; *зак.* **1.** *каго.* Прывесці ў вялікай колькасці. *Н. людзей у клуб.* **2.** *каго (што) на каго (што).* Ведучы, прывесці, вывесці куды-н. *Н. на след.* **3.** *што.* Накіраваць, нацэліць што-н. у бок каго-, чаго-н. *Н. бінокль. Н. гармату.* **4.** *перан., каго на што.* Накіраваць (на думку, размову, сумненне і пад.); садзейнічаць з'яўленню (думкі, сумнення і пад.). *Н. на шчырую размову.* **5.** *перан., што.* Прывесці што-н. да пэўнага стану, надаць адпаведны выгляд. *Н. бляск. Н. парадак.* **6.** *што.* Пабудаваць (пра мост, пераправу). *Н. мост.* **7.** *што.* Зрабіць інструмент прыгодным для карыстання. *Н. брытву. Н. музычны інструмент.* **8.** *каго.* Нарадзіць, напладзіць у нейкай колькасці (разм.). *Н. дзяцей поўную хату.* **9.** *каго.* Быць наводчыкам, садзейнічаць крадзяжу чаго-н. *Н. злодзея.* ◊ **Навесці на розум** — даць разумную параду, навучыць чаму-н. добраму. ‖ *незак.* **наво́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **навядзе́нне**, -я, *н.* (да 3, 5 і 6 знач.) *і* **наво́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 3, 6 і 7 знач.). *Навядзенне бляску. Навядзенне мастоў* (таксама перан.: устанаўленне сувязей, кантактаў; кніжн.). ‖ *прым.* **навадны́**, -а́я, -о́е (да 6 знач. у некаторых спалучэннях). *Н. мост. Навадная пераправа.*

**НАВЕ́ЧНА**, *прысл.* Назаўсёды. *Н. ў памяці народнай застануцца героі Вялікай Айчыннай вайны.*

**НАВЕ́ЯЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; -е́й; -е́яны; *зак., што* і *чаго.* **1.** Веючы, ачысціць нейкую колькасць збожжа. *Н. тону пшаніцы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Нанесці, прынесці ветрам. *Навеяла завіруха гурбы снегу.* **3.** *перан.* Выклікаць у каго-н. пэўны настрой, думкі і пад., прывесці ў пэўны душэўны стан. *Н. сум.* ‖ *незак.* **наве́йваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **навява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 3 знач.).

**НАВЁРСТВАЦЬ**[1] *гл.* навярстаць[1].

**НАВЁРСТВАЦЬ**[2] *гл.* навярстаць[2].

**НАВІВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для навівання. *Н. станок.*

**НАВІГА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст у галіне навігацыі (у 2 знач.). **2.** Пераноснае электроннае прыстасаванне, якое дазваляе з дапамогай спадарожнікавай сістэмы пракласці аптымальны маршрут з аднаго месца ў іншае і вызначыць месца на карце, дзе яно ў дадзены момант знаходзіцца. *Устанавіць н. Аўтамабільны н.* ‖ *прым.* **навіга́тарскі**, -ая, -ае.

**НАВІГА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Суднаходства, мараплаванне. *Адкрыць навігацыю.* **2.** Перыяд года, калі магчыма суднаходства. **3.** Навука аб спосабах выбару шляху і метадах ваджэння суднаў, лятальных і касмічных апаратаў. *Падручнік па навігацыі. Паветраная н. Касмічная н.* **4.** Тэхналогія, працэс кіравання і выбару аптымальнага маршруту для транспартнага сродку з дапамогай навігатара (у 2 знач.). *Аўтамабільная н.* ‖ *прым.* **навігацы́йны**, -ая, -ае. *Н. перыяд. Навігацыйныя прыборы. Навігацыйная сістэма*

**НАВІДАВО́КУ**, *прысл.* (разм.). Так, што ўсе бачаць. *Усё гэта адбывалася н.*

**НАВІЗНА́**, -ы́, *ж.* Нешта новае ў чым-н. *Н. поглядаў. Пачуццё навізны.*

**НАВІНА́**, -ы́, *мн.* наві́ны, -ві́н, *ж.* **1.** Атрыманая нядаўна вестка. *Прыемная н. Пачуць многа навін.* **2.** Нешта новае, незнаёмае. *Н. ў жыцці.*

**НАВІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Што-н. новае, што нядаўна з'явілася. *Навінкі тэхнікі. Кніжныя навінкі.* **2.** Тое, што і *навіна* (у 1 знач.; разм.). *Расказаць навінку.*

**НАВІ́СЛЫ**, -ая, -ае. Які навісае, спускаецца зверху. *Навіслыя бровы. Навіслыя хмары.*

**НАВІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; наві́с, -сла; *зак.* **1.** Спусціцца, звесіцца нізка над чым-н., на што-н. *Валасы навіслі на вочы. Над ракой нізка навіслі вербы.* **2.** Распасцерціся, апусціцца, размясціцца нізка над чым-н. *Туман навіс над ракой. Ноч навісла над горадам.* **3.** *перан., над кім-чым.* Узнікшы, з'явіўшыся, пачаць пагражаць каму-, чаму-н. *Над краінай навісла небяспека.* ‖ *незак.* **навіса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НА́ВІСЬ**, -і, *Т* на́віссю, *ж.* **1.** Тое, што навісае над чым-н. *Пад навіссю чаромхі.* **2.** *перан.* Нешта страшнае, што навісла над кім-н., што пагражае чалавеку. *Н. небяспекі.*

**НАВІ́ЦЬ**, наўю́, наўе́ш, наўе́; наўём, наўяце́, наўю́ць; наві́ў, -віла́, -ло́; наві́; наві́ты; *зак., што* і *чаго.* **1.** Наматаць, накруціць на што-н. *Н. ніткі на шпульку.* **2.** Нарыхтаваць вітых вырабаў. *Н. вяровак.* ‖ *незак.* **навіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **навіва́нне**, -я, *н.*

**НАВІЧО́К**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* **1.** Чалавек, які ўпершыню з'явіўся дзе-н. *У клас прыйшлі два навічкі.* **2.** Той, хто ўпершыню пачаў займацца якой-н. справай. *Н. у ваеннай справе.*

**НАВО́БМАЦАК**, *прысл.* Пры дапамозе дотыку, абмацваючы. *Ісці н.*

**НАВО́ДДАЛЕК** (разм.). **1.** *прысл.* Тое, што і *наводдаль* (у 1 знач.). *Стаяць н.* **2.** *прыназ. з Р.* Тое, што і *наводдаль* (у 2 знач.). *Клуб стаяў н. вуліцы.*

**НАВО́ДДАЛЬ**. **1.** *прысл.* На некаторай адлегласці; не вельмі далёка. *Н. стаяла каплічка.* **2.** *прыназ. з Р.* Выражае прасторавыя адносіны: ужыв. пры назве прадмета, асобы, месца ці прасторавай мяжы, на пэўнай адлегласці ад якіх адбываецца дзеянне, рух або размяшчаецца хто-, што-н. *Млын стаяў н. вёскі.*

**НАВО́ДЗІЦЬ** *гл.* навесці.

**НАВО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** *гл.* навесці. **2.** Наданне ствалу гарматы пэўнага кірунку для пападання ў цэль (спец.). *Біць прамой наводкай.*

**НАВО́ДЛІЎ**, *прысл.* (разм.). Наводмаш. *Н. ударыць па шчацэ.*

**НАВО́ДМАШ**, *прысл.* Размахнуўшыся, з размаху, з сілай. *Ударыць н.*

**НАВО́ДНЫ**, -ая, -ае (разм.). Які прыведзены, прывезены аднекуль; чужы (часцей пра жывёл). *Наводныя жывёлы.*

**НАВО́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Баец, які наводзіць гармату, кулямёт на цэль. **2.** Спецыяліст, які займаецца наводкай чаго-н. *Н. мастоў.* **3.** Саўдзельнік зладзейскай шайкі, які высочвае і наводзіць на месца, дзе можна красці (разм.). ‖ *ж.* **наво́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**НАВО́ЗІЦЬ** *гл.* навезці.

**НАВО́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (спец.). Валік у кроснах, на які навіваюцца ніткі асновы. ‖ *прым.* **наво́йны**, -ая, -ае.

**НАВО́КАЛ**. **1.** *прысл.* Усюды, з усіх бакоў, кругом. *Агледзецца н.* **2.** *прыназ. з Р.* Ужыв. для выражэння прасторавых адносін пры назве асобы, прадмета або месца, з усіх бакоў якога адбываецца пэўнае дзеянне ці размяшчаецца што-н. *Абысці н. саду. Н. агню сядзелі людзі.* **3.** *прыназ. з Р.* Ужыв. для выражэння аб'ектных адносін: указвае на асобу, прадмет ці паняцце, якое з'яўляецца аб'ектам пэўнага працэсу або дзеяння. *Гутарка ідзе н. аднаго пытання.*

**НАВО́КАЛА**. **1.** *прысл.* Тое, што і *навокал* (у 1 знач.). *Н. — поле ды лес.* **2.** *прыназ. з Р.* Тое, што і *навокал* (у 2 знач.).

**НАВО́РВАЦЬ** *гл.* наараць.

**НАВО́ХРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* Пафарбаваць вохрай. ‖ *незак.* **наво́хрываць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАВО́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Шчыток або павязка для аховы вачэй ад чаго-н. **2.** Шчыток на вуздэчцы, які не дае пужліваму каню глядзець па баках.

**НАВО́ЧНЫ**[1], -ая, -ае. Які надзяваецца на вочы для аховы ад чаго-н. *Н. шчыток.*

**НАВО́ЧНЫ**[2], -ая, -ае (разм.). Тое, што і *наглядны. Навочная агітацыя.*

**НАВО́ШТА**, *прысл.* Тое, што і *нашто.*

**НАВУГО́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Лінейка ў выглядзе трохвугольніка, пры дапамозе якой вычэрчваюцца прамыя вуглы і праводзяцца перпендыкулярныя лініі. **2.** Накладка для замацавання або аздаблення вуглоў (рамы, скрыні і пад.).

**НАВУГО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца на вугле. *Навугольная вежа.*

**НАВУ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што* і *каго (чаго).* Налавіць вудай. *Н. акунёў.* ‖ *незак.* **наву́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАВУ́КА**, -і, *ДМ* -ву́цы, *мн.* -і, -ву́к, *ж.* **1.** Сістэма ведаў аб заканамернасцях развіцця прыроды, грамадства і мыслення, а таксама асобная галіна гэтых ведаў. *Развіццё навукі. Гуманітарныя навукі.* **2.** толькі *адз.* Навыкі, веды, якія чалавек атрымлівае ў выніку свайго навучання або жыццёвага вопыту. *Гэтая справа патрабуе навукі.* **3.** толькі *адз.* Павучанне, настаўленне; урок. *Гэта будзе навукай на ўсё жыццё.* **4.** толькі *адз.* Навучанне, вучоба (разм.). *Хлопец здатны да навукі.* || *прым.* **навуко́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Навуковая праблема.*

**НАВУКАЗНА́ВЕЦ**, -на́ўца, *мн.* -на́ўцы, -на́ўцаў, *м.* Спецыяліст па навуказнаўстве.

**НАВУКАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Галіна ведаў, якая вывучае заканамернасці функцыянавання і развіцця навукі, структуру і дынаміку навуковай дзейнасці, узаемадзеянне навукі з іншымі сферамі матэрыяльнага і духоўнага жыцця грамадства. || *прым.* **навуказна́ўчы**, -ая, -ае.

**НАВУКАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Які мае толькі знешнія адзнакі навуковасці. || *наз.* **навукападо́бнасць**, -і, *ж.*

**НАВУКО́ВА-ТЭХНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да навукі і тэхнікі, звязаны з праблемамі навукі і тэхнікі. *Навукова-тэхнічны прагрэс.*

**НАВУКО́ВЕЦ**, -о́ўца, *мн.* -о́ўцы, -о́ўцаў, *м.* Навуковы супрацоўнік, вучоны. *Вядомы н.*

**НАВУКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* навука. **2.** Заснаваны на прынцыпах навукі, які адпавядае патрабаванням навукі. *Навуковая тэорыя. Навуковае адкрыццё.* **3.** Заняты распрацоўкай пытанняў якой-н. навукі, арганізацыяй работы ў пэўнай галіне ведаў. *Н. супрацоўнік. Н. ўстанова.* || *наз.* **навуко́васць**, -і, *ж.*

**НАВУЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да вучобы, навучання. *Н. год. Навучальная ўстанова. Н. дапаможнік.* **2.** Які кіруе вучэбным працэсам. *Загадчык навучальнай часткі.*

**НАВУЧА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* вучыць. **2.** Парада, настаўленне павучальна-выхаваўчага характару (разм.). *Матчына н.*

**НАВУЧА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* Атрымліваць адукацыю, набываць пэўныя веды ў якой-н. галіне. *Н. ў школе. Н. на маляра.*

**НАВУЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго.* **1.** Перадаваць каму-н. якія-н. веды, навыкі. *Н. грамаце. Н. гуляць у шахматы.* **2.** Падбіваць на што-н. нядобрае (разм.). *Вуліца навучае лаянцы.* **3.** Даваць параду, наводзіць на розум (разм.). *Маці навучае дзяцей дабру.*

**НАВУЧЫ́ЦЦА** *гл.* вучыцца.

**НАВУЧЫ́ЦЬ** *гл.* вучыць.

**НАВУЧЭ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Той, хто навучаецца, вучыцца ў старшых класах сярэдніх школ і ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах. *Н. каледжа.* || *ж.* **навучэ́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **навучэ́нскі**, -ая, -ае.

**НАВУ́ШНІКІ**, -аў, *адз.* навушнік, -а, *м.* **1.** Прылада для слухання, якая надзяваецца на вушы. *Н. да плэера.* **2.** Частка цёплай шапкі, якая закрывае вушы, або спецыяльнае прыстасаванне для засцярогі вушэй ад холаду. *Апусціць навушнікі ў шапцы.*

**НАВЫБІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., чаго.* **1.** Сабраць нейкую колькасць ураджаю бульбы, агуркоў і пад. *Н. чатыры кашы агуркоў.* **2.** Выбраць нейкую колькасць чаго-н. *Н. спелых памідораў.*

**НАВЫДУ́МВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., чаго.* Тое, што і *навыдумляць.*

**НАВЫДУМЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., чаго.* **1.** Вынайсці, стварыць, прыдумаць многа чаго-н. *Н. розных цацак для дзяцей.* **2.** Налгаць, нагаварыць рознай бязглуздзіцы. *Н. несусветных страхаў.*

**НА́ВЫК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Уменне, выпрацаванае вопытам, практыкай. *Н. у рабоце. Працоўны н.*

**НАВЫЛЁТ** *і* **НАВЫ́ЛЕТ**, *прысл.* Наскрозь, праз усю таўшчыню чаго-н. ◊ **Бачыць навылёт (навылет)** — вельмі добра ведаць, разумець каго-н.

**НАВЫЛЁТНЫ**, -ая, -ае. Скразны, які праходзіць наскрозь ад аднаго канца да другога праз унутраную частку чаго-н. *Навылётная адтуліна. Навылётнае кулявое раненне.*

**НАВЫ́ПЕРАДКІ**, *прысл.* Імкнучыся перагнаць, выперадзіць іншага, адзін аднаго. *Імчацца н.*

**НАВЫ́ПУСК**, *прысл.* Не запраўляючы ў боты, чаравікі (пра штаны); зверху штаноў, спадніцы (пра кофту, кашулю). *Штаны н. Насіць кофту н.*

**НАВЫРАБЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., чаго.* **1.** Зрабіць, вырабіць што-н. у вялікай колькасці. *Н. цацак.* **2.** Апрацаваць дубленнем многа чаго-н. *Н. шкур.* **3.** Насваволіць, нагарэзнічаць (разм.). *Чаго толькі не навыраблялі дзеці ў хаце.*

**НАВЫ́РАСТ**, *прысл.* Тое, што і *нападрост.*

**НАВЭ́НДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., чаго.* Прыгатаваць нейкую колькасць шляхам вэнджання. *Н. шынак.*

**НАВЮ́ТКІ**, -ая, -ае (разм.). Зусім новы, самы новы. *Н. касцюм.*

**НАВЯДЗЕ́ННЕ** *гл.* навесці.

**НАВЯЗА́ЦЦА**, -вяжу́ся, -вя́жашся, -вя́жацца; -вяжы́ся; *зак.* (разм.). Напрасіцца; дамагчыся свайго назойлівымі просьбамі. *Н. ў сябры.*

**НАВЯЗА́ЦЬ**, -вяжу́, -вя́жаш, -вя́жа; -вяжы́; -вя́заны; *зак.* **1.** *чаго.* Нарыхтаваць, зрабіць шляхам вязання. *Н. шапак. Н. венікаў.* **2.** *каго (што).* Прымацаваць, узяць на прывязь. *Н. каня на лузе.* **3.** *пера́н., каго-што каму.* Прымусіць каго-н. прыняць або зрабіць што-н. супраць яго волі, жадання. *Н. сваю думку. Н. бой.* || *незак.* **навя́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАВЯРНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ве́рнецца; *зак.* **1.** Выступіць на вачах (пра слёзы). *Ад болю навярнуліся слёзы на вачах.* **2.** Нахіліцца на бок. || *незак.* **навaро́чвацца**, -аецца.

**НАВЯРНУ́ЦЬ**, -вярну́, -ве́рнеш, -ве́рне; -вярні́; -ве́рнуты; *зак.* **1.** *каго-што чым.* Палажыць што-н. цяжкае паверх чаго-н. *Н. каменем.* **2.** *чаго.* Налажыць, накідаць многа чаго-н.; наваліць. *Н. зямлі.* **3.** пераважна *безас., чаго.* Намесці, нагнаць у вялікай колькасці. *Навярнула гурбы снегу.* **4.** *што.* Нахіліць у які-н. бок. *Н. цэбар.* **5.** *чаго* і *без дап.* Нагаварыць на каго-н. няпраўды; наплесці (разм.). *Н. на чалавека немаведама чаго.* || *незак.* **навaро́чваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1, 2 і 4 знач.).

**НАВЯРСТА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што* (спец.). Шляхам вёрсткі зрабіць у нейкай колькасці. || *незак.* **навёрстваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАВЯРСТА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* Тое, што і *нагнаць* (у 2 і 3 знач.). *Н. упушчанае.* || *незак.* **навёрстваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАВЯРЭ́ДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* Тое, што і *наверадзіцца.*

**НАВЯРЭ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Тое, што і *наверадзіць.*

**НАВЯСНЫ́**, -а́я, -о́е. Прыстасаваны для навешвання. *Н. замок.*

**НАГА́**, -і́, *ДМ* назе́, *мн.* но́гі *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) нагі́, ног, *Д* нага́м, *ж.* **1.** Адна з дзвюх ніжніх канечнасцей чалавека, а таксама адна з канечнасцей птушак і жывёл. *Доўгія ногі. Пераступіць з нагі на нагу. Левая нага.* **2.** Апора, ніжняя частка мэблі, пабудовы, механізма. *Стол на чатырох нагах.* ◊ **Адной нагой у магіле** — быць блізкім да смерці. **Бегчы з усіх ног** — вельмі хутка, што ёсць моцы. **Блытацца пад нагамі** — замінаць, перашкаджаць каму-н. **Быць на роўнай назе** *з кім* — быць у добрых сяброўскіх адносінах. **Збіцца з ног** — стаміцца, змучыцца ад клопатаў, беганіны. **Ледзь вынесці ногі** —пазбегнуць небяспекі, выратавацца. **Ледзь ногі носяць** — аб вялікай стомленасці, старасці. **Ляжаць без задніх ног** — не мець сілы паварушыцца (ад стомы і пад.). **Нага ў нагу** — нароўні з кім-н., у адпаведнасці з кім-, чым-н. **На шырокую нагу** (разм.) — вельмі багата, раскошна. **Ні нагой** *куды, да каго* — не бываць дзе-н. **Ног не чуць пад сабой** — а) вельмі хутка; б) вельмі стаміцца. **Падняцца на ногі** — стаць дарослым, самастойным. **Падняць на ногі** — усхваляваць, прымусіць трывожыцца. **Паставіць з ног на галаву** — няправільна растлумачыць што-н. **Паставіць на ногі** — вылечыць, выгадаваць да самастойнага жыцця. **Траціць грунт (глебу, зямлю) пад нагамі** — пазбаўляцца таго, на чым грунтуецца грамадскае становішча, светапогляд і пад. **Устаць з левай (не з той) нагі** — быць у дрэнным настроі. || *памянш.-ласк.* **но́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* || *прым.* **нажны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**НАГАБЛЯВА́ЦЬ**, -люю, -люеш, -люе; -лю́й; -лява́ны; *зак., чаго.* Апрацаваць габляваннем нейкую колькасць чаго-н. *Н. дошак.* ‖ *незак.* **нагаблёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАГАВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -во́рышся, -во́рыцца; *зак.* Пагаварыць уволю. *Н. з сяброўкай.*

**НАГАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -во́рыш, -во́рыць; -во́раны; *зак.* **1.** *чаго і без дап.* Сказаць многа чаго-н. *Н. лішняга. Н. кампліментаў.* **2.** *на каго (што) і без дап.* Узвесці паклёп. *Н. на дзяўчыну.* **3.** *што.* Запісаць на спецыяльнае прыстасаванне для гуказапісу (дыктафон і інш.). **4.** *што.* Тое, што і *загаварыць*[2] (разм.). ◊ **Нагаварыць сорак бочак арыштантаў** (разм.) — расказаць шмат неверагодных гісторый. ‖ *незак.* **нагаво́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАГАВІ́ЦЫ**, -ві́ц *і* -аў (разм.). Штаны. *Новыя н.* ‖ *памянш.-ласк.* **нагаві́чкі**, -чак. ‖ *прым.* **нагаві́чны**, -ая, -ае. *Н. матэрыял.*

**НАГАВО́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *паклёп. Арыштаваны па нагаворы.* **2.** У народных павер'ях: заклінанне, якое мае магічную сілу. ‖ *прым.* **нагаво́рны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**НАГАВО́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто ўзводзіць паклёп на каго-н.; паклёпнік. ‖ *ж.* **нагаво́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **нагаво́ршчыцкі**, -ая, -ае.

**НАГАДАВА́ЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -ду́й; -дава́ны; *зак.* **1.** *каго-чаго.* Выгадаваць, вырасціць у нейкай колькасці. *Н. дзяцей. Н. пладовых дрэў.* **2.** *каго.* Расплодзіць. *Н. гусей.* ‖ *незак.* **нагадо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАГАДА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Успомніцца, прыйсці на памяць. *Нагадалася вясна 1945-га.* ‖ *незак.* **нага́двацца**, -аецца.

**НАГАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *каго-што.* Паказацца падобным да каго-, чаго-н. **2.** *што, пра што, аб чым, з дадан.* і *без дап.* Выклікаць успамін. *Пісьмо нагадала мінулае.* **3.** *што* і *без дап.* Успомніць. *Н. дзяцінства.* ‖ *незак.* **нага́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **нага́дванне**, -я, *н.* (да 2 і 3 знач.).

**НАГАДЗІ́ЦЦА**, -гаджу́ся, -го́дзішся, -го́дзіцца; *зак.* (разм.). **1.** Нечакана трапіцца, выпадкова сустрэцца. **2.** Здарыцца. *Неспадзявана нагадзілася новае няшчасце.* ‖ *незак.* **нагаджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**НАГА́ДЗІЦЬ** *гл.* га́дзіць.

**НАГА́ЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -га́ек, *ж.* Кароткі раменны плецены бізун. *Казацкая н.* ‖ *прым.* **нага́ечны**, -ая, -ае.

**НАГА́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -га́ец, -га́йца, *м.* Народ цюркскай моўнай групы, які жыве на Паўночным Каўказе. ‖ *ж.* **нага́йка**, -і, *ДМ* -га́йцы, *мн.* -і, -га́ек. ‖ *прым.* **нага́йскі**, -ая, -ае.

**НА́ГАЛА**, *прысл.* **1.** Не пакінуўшы валасоў. *Пастрыжаны н.* **2.** Выняўшы з ножнаў (шаблю, цясак). *Трымаць шашкі н.*

**НАГАЛАДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Доўга, многа пагаладаць, папакутаваць ад голаду.

**НАГАЛАСІ́ЦЦА**, -лашу́ся, -ло́сішся, -ло́сіцца; *зак.* Доўга паплакаць, галосячы.

**НАГАМАНІ́ЦЦА**, -манюся, -мо́нішся, -мо́ніцца; *зак.* (разм.). Пагаманіць доўга, уволю. *Спаткаліся і не маглі н.*

**НАГАМАНІ́ЦЬ**, -маню́, -мо́ніш, -мо́ніць; *зак.* (разм.). Нагаварыць многа чаго-н.

**НАГА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рэвальвер з рухомым барабанам. ‖ *прым.* **нага́нны**, -ая, -ае.

**НАГАНДЛЯВА́ЦЬ**, -люю, -люеш, -люе; -люй; -лява́ны; *зак., чаго.* Набыць гандлем у нейкай колькасці. *Н. многа грошай.* ‖ *незак.* **нагандлёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАГАНЯ́Й**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* (разм.). Строгая вымова. *Атрымаць н. ад кіраўніцтва.*

**НАГАНЯ́ЦЬ** *гл.* нагнаць.

**НАГА́Р**, -у, *м.* Тое, што ўтвараецца ад няпоўнага згарання чаго-н., нараст ад гарэння. *Н. на свечцы.* ‖ *прым.* **нага́рны**, -ая, -ае.

**НА-ГАРА́**, *прысл.* (спец.). У шахцёраў: з шахты на паверхню зямлі. *Выдаць вугаль н.*

**НАГАРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *зак.* Зазнаць многа гора. *Н. ў вайну.*

**НАГАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны; *зак., чаго.* **1.** Нарабіць многа перагародак, парканаў, платоў. *Н. рыштаванняў.* **2.** Наставіць, накідаць у беспарадку вялікую колькасць чаго-н. (разм.). **3.** *перан.* Нагаварыць, напісаць чаго-н. лішняга, непатрэбнага (разм.). *Н. глупства.* ‖ *незак.* **нагаро́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАГАРНУ́ЦЬ**, -гарну́, -го́рнеш, -го́рне; -гарні́; -го́рнуты; *зак., чаго.* Горнучы, заграбаючы, сабраць у адно месца нейкую колькасць чаго-н. *Н. кучу пяску.* ‖ *незак.* **нагóртваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАГАРЭ́ЗАВАЦЬ**, -зую, -зуеш, -зуе; *зак.* (разм.). Тое, што і *нагарэзнічаць.*

**НАГАРЭ́ЗНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Насваволіць, напракудзіць.

**НАГАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. На якім утварыўся нагар. *Н. кнот.*

**НАГАРЭ́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́ць; *зак.* **1.** Даць нагар. *Кнот нагарэў за вечар.* **2.** *безас., чаго.* Расходавацца ў нейкай колькасці (пра паліва, электрычную энергію; разм.). *Нагарэла многа электрычнасці.* ‖ *незак.* **нагара́ць**, -а́е *і* **нага́рваць**, -ае.

**НАГАРЭ́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́ць; *безас.; зак., каму* (разм.). Быць пакараным, атрымаць спагнанне за што-н. *Яму моцна нагарэла.*

**НАГАСПАДА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак.* (разм.). Кіруючы гаспадаркай, дасягнуць чаго-н. *Без добрай зямлі не нагаспадарыш.*

**НАГАСЦІ́ЦЦА**, -гашчу́ся, -го́сцішся, -го́сціцца; *зак.* (разм.). Уволю, многа пагасціць. *Нагасціўся, пара і дадому ехаць.*

**НАГАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., чаго.* **1.** Назапасіць нейкую колькасць чаго-н. *Н. дроў на зіму. Н. сена* **2.** Згатаваць, зварыць у нейкай колькасці. *Н. бульбы.* **3.** Накіпяціць у нейкай колькасці. *Н. вару.* ‖ *незак.* **нагато́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАГАЦІ́ЦЬ**, -гачу́, -га́ціш, -га́ціць; -га́чаны; *зак., што.* Пакрыць грэбляй што-н. *Н. сто метраў балоцістай дарогі.* ‖ *незак.* **нага́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАГБО́М**, *прысл.* (разм.). У выразе: **піць нагбом** — піць з вялікай пасудзіны, нахіліўшы яе.

**НАГІНА́ЦЦА** *гл.* нагнуцца.

**НАГІНА́ЦЬ** *гл.* нагнуць.

**НАГЛА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *што.* Выгладзіць добра, акуратна. *Н. штаны.* **2.** *чаго.* Выгладзіць у нейкай колькасці. *Н. бялізны.* ‖ *незак.* **нагла́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАГЛЕ́БАВЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца на глебе, які мае адносіны да глебы. *Наглебавае расліннае покрыва.*

**НАГЛЕ́ДЗЕЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца *і* **НАГЛЯДЗЕ́ЦЦА**, -джу́ся, -дзі́шся, -дзі́цца; -дзі́мся, -ледзіце́ся, -дзя́цца; *зак.* **1.** Уволю паглядзець. *Дзяўчына не магла н. ў люстэрка. Н. адзін на аднаго.* **2.** Паглядзець, убачыць многа чаго-н.; убачыць не адзін раз што-н. *Н. за доўгае жыццё.*

**НАГЛЕ́ДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што.* Уважліва назіраючы, заўважыць, знайсці; прыгледзець з якой-н. мэтай. *Н. утульнае месца для забудовы.* ‖ *незак.* **нагле́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАГЛУМІ́ЦЬ**, -лумлю́, -лу́міш, -лу́міць; -лу́млены; *зак., чаго* (разм.). Зрабіць непрыгодным, напсаваць у нейкай колькасці. *Н. лесу. Н. бульбы.*

**НА́ГЛУХА**, *прысл.* **1.** Вельмі шчыльна, без адтулін. *Н. забіць вокны.* **2.** На ўсе гузікі, кручкі, засцежкі (зашпіліцца).

**НАГЛУШЫ́ЦЬ**, -глушу́, -глу́шыш, -глу́шыць; -глу́шаны; *зак., каго* (разм.). Глушачы, налавіць нейкую колькасць рыбы.

**НАГЛЫТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** *каго-што.* Праглынуць у вялікай колькасці. *Н. пылу. Н. халоднай вады.* **2.** Наесціся чаго-н., недастаткова перажоўваючы (разм.). *Н. клёцак.*

**НАГЛЯ́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** Назіранне за кім-, чым-н. для аховы, кантролю, вывучэння і г.д. *Працаваць пад наглядам старэйшых. Знаходзіцца пад наглядам урачоў.* **2.** Догляд, клопат. *Дбайны н.* **3.** *з азначэннем.* Група асоб, якая ажыццяўляе назіранне з мэтай аховы, кантролю і г.д. *Санітарны н. Апякунскі н. Тэхнічны н.* ‖ *прым.* **нагля́дны**, -ая, -ае (да 3 знач.; спец.). *Наглядныя органы.*

**НАГЛЯДА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая наглядае за кім-, чым-н. *Ваенны*

*н.* ‖ *ж.* **наглядáльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **наглядáльніцкі**, -ая, -ае.

**НАГЛЯДÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Уважлівы, які ўмее добра назіраць, падмячаць. *Н. чалавек.* **2.** Які служыць для наглядання за кім-, чым-н. *Н. пункт.* ‖ *наз.* **наглядáльнасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**НАГЛЯДÁННЕ**, -я, *м.* **1.** *гл.* наглядаць. **2.** Тое, што заўважана ў працэсе вывучэння, разгляду чаго-н., назіранняў над чым-н. *Жыццёвыя нагляданні.*

**НАГЛЯДÁЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *незак.* **1.** Бываць, здарацца, назірацца. *Наглядаюцца памылкі ў працы.* **2.** Адзначацца. *Наглядаецца зніжэнне захворванняў на грып.*

**НАГЛЯДÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *каго-што, за кім-чым, з дадан. сказам і без дап.* Уважліва сачыць вачыма за кім-, чым-н. *Н. зацьменне сонца. Н. за палётам буслоў.* **2.** *за кім-чым.* Вывучаць, даследаваць. *Н. за развіццём падзей, што адбываюцца ў грамадстве.* **3.** *за кім-чым.* Ажыццяўляць нагляд. *Н. за дзецьмі. Н. за парадкам.* ‖ *наз.* **наглядáнне**, -я, *н.*

**НАГЛЯ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* нагляд. **2.** Заснаваны на паказе таго, што вывучаецца. *Н. метад навучання. Наглядныя дапаможнікі.* **3.** Пераканаўчы; такі, які можна наглядаць. *Н. прыклад. Наглядная агітацыя.* ‖ *наз.* **нагля́днасць**, -і, *ж.*

**НАГЛЯ́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які за кім-, чым-н. наглядае. ‖ *ж.* **нагля́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **нагля́дчыцкі**, -ая, -ае.

**НАГЛЯНЦАВÁЦЬ** *гл.* глянцаваць.

**НАГНАЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* нагнаіцца. **2.** Гнайнік, нарыў. *Мясцовае н.*

**НАГНАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -гнóіцца; *зак.* Стаць гнойным. *Рана нагнаілася.* ‖ *незак.* **нагнóйвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **нагнае́нне**, -я, *н.*

**НАГНАІ́ЦЬ**, -гнаю́, -гнóіш, -гнóіць; -гнóены; *зак.* **1.** *што.* Выклікаць нагнаенне чаго-н. *Н. рану.* **2.** *чаго.* Згнаіць у нейкай колькасці.

**НАГНÁЦЬ**, -ганю́, -гóніш, -гóніць; -гані́; -гнáны; *зак.* **1.** *каго-што.* Ідучы, едучы і пад., дагнаць. *Н. уцекача.* **2.** *перан., каго-што.* Дагнаць каго-н. у поспехах, развіцці, выніках. *Н. таварышаў па вучобе.* **3.** *што* і *без дап.* Выканаць тое, што не было зроблена ў свой час. *Н. упушчанае.* **4.** *каго-чаго, што.* Сагнаўшы, сабраць у адным месцы. **5.** часцей *безас., што* і *чаго.* Прыгнаць, нанесці (пра дождж, снег і пад.). *Вецер нагнаў хмар. Не нагнала б* (безас.) *дажджу.* **6.** *перан., што* і *чаго.* Унушыць каму-н. якое-н. пачуццё. *Н. страху. Н. смутку.* **7.** *што* і *чаго.* Выклікаць рэзкае павелічэнне якім-н. спецыяльным прыёмам. *Н. тэмпературу.* **8.** *што* і *чаго.* Нацерці. *Н. мазалёў.* **9.** *што.* Набіць што-н. на што-н. *Н. абручы на бочку.* **10.** *чаго.* Нагатаваць перагонкай. *Н. бочачку спірту.* ◊ **Нагнаць аскому** (разм., неадабр.) — адчуць непрыемнасць ад чаго-н. збітага, нуднага. ‖ *незак.* **наганя́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**НАГНУ́ЦЦА**, -гну́ся, -гне́шся, -гне́цца; -гнёмся, -гняце́ся, -гну́цца; -гні́ся; *зак.* Нахіліцца над кім-, чым-н. *Н. над дзіцем. Галіна нагнулася.* ‖ *незак.* **нагінáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**НАГНУ́ЦЬ**, -гну́, -гне́ш, -гне́; -гнём, -гняце́, -гну́ць; -гні́; -гну́ты; *зак.* **1.** *што.* Сагнуўшыся, нахіліць, накіраваць уніз. *Н. галаву. Н. галінку дрэва.* **2.** *чаго.* Нарабіць, нарыхтаваць нейкую колькасць чаго-н. гнутага. *Н. дуг.* ‖ *незак.* **нагінáць**, -áю, -áеш, -áе (да 1 знач.); *наз.* **нагінáнне**, -я, *н.*

**НАГНЯСЦІ́**, -гняту́, -гняце́ш, -гняце́; -гняцём, -гнецяце́, -гняту́ць; -гняці́; *зак., што* і *чаго.* Пры дапамозе ціску перамясціць і сканцэнтраваць у абмежаванай прасторы (газ, вадкасць). *Н. паветра.* ‖ *незак.* **нагнятáць**, -áю, -áеш, -áе; *наз.* **нагнятáнне**, -я, *н.*

**НАГНЯТÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для нагнятання. *Н. насос.*

**НАГÓДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Падстава для чаго-н., выпадак. *Выдалася такая н.*

**НАГÓЙСАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Уволю, многа пагойсаць; набегацца. *Н. за дзень.*

**НАГÓР'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Узвышаная мясцовасць, якая спалучае пласкагор'і, горныя хрыбты і даліны.

**НАГÓРНЫ**, -ая, -ае. **1.** Горны, які знаходзіцца ў гарах. *Н. ручай.* **2.** Гарысты, высокі. *Н. бераг ракі.*

**НАГÓТКІ**, -так, *адз.* нагóтка, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Аднагадовая садовая расліна з аранжава-жоўтымі кветкамі; кракос. ‖ *прым.* **нагóткавы**, -ая, -ае.

**НАГРÁБІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., чаго.* Прысвоіць грабяжом многа чаго-н.

**НАГРАВÁЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прыбор, апарат, прызначаны для награвання чаго-н. *Электрычны н.*

**НАГРАВÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які прызначаны, служыць для награвання. *Н. прыбор.*

**НАГРАВÁННЕ** *гл.* нагрэць.

**НАГРАВÁЦЦА** *гл.* нагрэцца.

**НАГРАВÁЦЬ** *гл.* нагрэць.

**НАГРАВІРАВÁЦЬ** *гл.* гравіраваць.

**НАГРАНІ́ЦЬ** *гл.* граніць.

**НАГРАШЫ́ЦЬ**, -грашу́, -грашы́ш *і* -грэ́шыш, -грашы́ць *і* -грэ́шыць; -грашы́м *і* -грэ́шым, -грашыце́ *і* -грэ́шыце, -грашáць *і* -грэ́шаць; -грашы́ў, -шы́ла; *зак.* (разм.). Нарабіць грахоў, грэшных учынкаў. *Нямала людзі награшылі.*

**НАГРУБІ́ЦЬ** *гл.* грубіць.

**НАГРУБІЯ́НІЦЬ** *гл.* грубіяніць.

**НАГРУВÁСЦІЦЦА** *гл.* грувасціцца.

**НАГРУВÁСЦІЦЬ** *гл.* грувасціць.

**НАГРУВÁШЧАННЕ**, -я, *н.* Бязладная куча, груда; вялікая колькасць чаго-н. *Н. старой мэблі. Н. цытат.*

**НАГРУВÁШЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* і *чаго.* Тое, што і *грувасціць.* ‖ *наз.* **нагрувáшчванне**, -я, *н.*

**НАГРУ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Невялікі фартух або частка фартуха, якая закрывае грудзі пры ядзе. *Дзіцячы н.* **2.** Частка конскай збруі, якую надзяваюць на грудзі каня. **3.** Частка сярэдневяковых даспехаў у выглядзе шчытка або панцыра, які засцерагаў грудзі. *Рыцарскі н. Засцерагальны н.*

**НАГРУ́ДНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для таго, каб насіць на грудзях; які знаходзіцца на грудзях. *Н. значок. Нагрудныя плаўнікі.*

**НАГРУЗІ́ЦЬ**, -гружу́, -гру́зіш, -гру́зіць; -гру́жаны; *зак., каго-што.* **1.** *гл.* грузіць. **2.** *перан., чым.* Ускласці на каго-н. якую-н. працу, грамадскія абавязкі, даручэнні. *Н. грамадскай работай.* ‖ *незак.* **нагружáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **нагру́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.*

**НАГРУ́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* **1.** *гл.* нагрузіць. **2.** Загружанасць работай якой-н. установы, прадпрыемства, машыны, апарата. *Н. электрасеткі ў вячэрнія гадзіны. Н. электрастанцыі.* **3.** *перан.* Ступень выразнасці, насычанасці чым-н. (у дачыненні да літаратуры, мастацтва і пад.). *Гэты вобраз нясе вялікую ідэйна-мастацкую нагрузку.* ‖ *прым.* **нагру́зачны**, -ая, -ае.

**НАГРЫ́ЗЦІ**, -зу́, -зе́ш, -зе́; -зём, -зяце́, -зу́ць; нагры́з, -зла; -зены; *зак., што* і *чаго.* Разгрызці ў нейкай колькасці. *Н. гарбузікаў.* ‖ *незак.* **нагрызáць**, -áю, -áеш, -áе.

**НАГРЫМІРАВÁЦЬ** *гл.* грыміраваць.

**НАГРЭ́БЦІ**, -грабу́, -грабе́ш, -грабе́; -грабём, -грабяце́, -грабу́ць; нагрóб, -грэ́бла *і* -граблá, -грэ́бла *і* -граблó; -грабі́; -грэ́бены; *зак., што* і *чаго.* **1.** Зграбаючы, сабраць нейкую колькасць. *Н. сена. Н. лісця.* **2.** *перан.* Прысвойваючы, сабраць вялікую колькасць чаго-н. *Н. чужога дабра.* ‖ *незак.* **награбáць**, -áю, -áеш, -áе.

**НАГРЭ́БЦІСЯ**, -грабу́ся, -грабе́шся, -грабе́цца; -грабёмся, -грабяце́ся, -грабу́цца; нагрóбся, -грэ́блася *і* -граблáся, -грэ́блася *і* -граблóся; -грабі́ся; *зак.* (разм.). **1.** Многа нагрэбці, стаміцца, грабучы. *Н. за дзень.* **2.** *перан.* Прысвоіць, нахапаць чаго-н. чужога ў вялікай колькасці. *Н. чужога дабра.*

**НАГРЭ́ЦЦА**, -грэ́юся, -грэ́ешся, -грэ́ецца; *зак.* **1.** Стаць, зрабіцца цёплым ці гарачым. *Вада нагрэлася на сонцы.* **2.** Сагрэцца (разм.). *Н. на печы.* ‖ *незак.* **награвáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**НАГРЭ́ЦЬ**, -грэ́ю, -грэ́еш, -грэ́е; -грэ́ты; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Зрабіць цёплым ці гарачым. *Н. вады.* **2.** *што.* Узняць тэмпературу ў памяшканні. *Н. пакой.* **3.** *перан., каго-што.* Падмануўшы, прымусіць панесці страту (разм., іран.). *Н. на вялікую суму грошай.* ‖ *незак.* **награвáць**, -áю, -áеш, -áе (да 1 і 2 знач.); *наз.* **награвáнне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **нагрэ́ў**, -грэ́ву, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**НАГУ́Л**, -у, *м.* **1.** *гл.* нагуляць. **2.** Ступень адкормленасці жывёлы (спец.).

**НАГУЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* Уволю пагуляць.

**НАГУЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Пасучыся, стаць тлустым, прыбавіць у вазе (пра жывёлу). *Н. тлушчу.* **2.** *што.* Гуляючы, набыць што-н. (разм.). *Н. апетыт.* **3.** *каго-што.* Стаць цяжарнай, нарадзіць дзіця, не будучы замужам (разм., груб.). **4.** Правесці нейкі час гуляючы (разм.). *Не вельмі тут нагуляеш.* ‖ *незак.* **нагу́льваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—3 знач.). ‖ *наз.* **нагу́л**, -у, *м.* (да 1 знач.; спец.).

**НАД(А)**, *прыназ. з Т.* **1.** Ужыв. пры абазначэнні размяшчэння, знаходжання каго-, чаго-н. зверху, паверх каго- ці чаго-н.; у непасрэднай блізкасці да таго, што названа залежным словам. *Туман над возерам. Нада мной. Вёска над Прыпяццю.* **2.** Ужыв. для абазначэння накіраванасці дзеяння на што-н., засяроджанасці на чым-н. *Працаваць над творам. Сядзець над задачай.* **3.** У спалучэнні з займеннікам «усе» паказвае на вышэйшае праяўленне ўласцівасцей дадзенага прадмета. *Мароз над усімі маразамі.*

**НАД... (над’..., нада...)**, *прыстаўка.* **I.** Утварае дзеясловы са знач.: 1) павелічэнне чаго-н. чым-н., напр., *надбудаваць;* 2) няпоўнае дзеянне, якое распаўсюджваецца на частку чаго-н., напр.: *надпіць, надламаць, над’есці, надарваць.* **II.** Утварае назоўнікі і прыметнікі са знач. больш высокага становішча, напр.: *надброўе, надгартанны.*

**НАДАЕ́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *надакучлівы. Надаедлівыя мухі.*

**НАДАЕ́СЦІ**, -дае́м, -даясі́, -дае́сць; -даядзі́м, -даясце́, -даяду́ць; -дае́ш; *зак., каму, з інф.* і *без дап.* Тое, што і *надакучыць.* ‖ *незак.* **надаяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАДАІ́ЦЬ**, -даю́, -до́іш, -до́іць; -до́ены; *зак., чаго.* Атрымаць даеннем якую-н. колькасць малака. ‖ *незак.* **надо́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАДАКУ́ЧЛІВЫ**, -ая, -ае. Такі, які дакучае. *Н. чалавек.* ‖ *наз.* **надаку́члівасць**, -і, *ж.*

**НАДАКУ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак., каму, з інф.* і *без дап.* Зрабіцца непрыемным сваёй аднастайнасцю, паўтарэннем. *Н. пытаннямі. Надакучыла* (безас.) *гуляць.* ‖ *незак.* **надаку́чваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **надакуча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАДАЛЕ́Й**, *прысл.* На будучы час, на потым. *Падтрымліваць і н. сяброўскія адносіны.*

**НАДА́ННЕ** *гл.* надаць.

**НАДАРВА́ЦЦА**, -рву́ся, -рве́шся, -рве́цца; -рвёмся, -рвяце́ся, -рву́цца; -рві́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Крыху, не да канца парвацца. *Вяроўка надарвалася.* **2.** Пашкодзіць сваё здароўе ад празмерных намаганняў. *Н. на будоўлі.* ‖ *незак.* **надрыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **надрыва́нне**, -я, *н.*

**НАДАРВА́ЦЬ**, -рву́, -рве́ш, -рве́; -рвём, -рвяце́, -рву́ць; -рві́; -рва́ны; *зак., што.* **1.** Крыху, не да канца парваць. *Н. вяроўку.* **2.** Пашкодзіць здароўе ў выніку якіх-н. празмерных намаганняў. *Н. здароўе.* ◊ **Надарваць жывот (жываты)** (разм.) — вельмі моцна і доўга пасмяяцца. **Надарваць сэрца** (разм.) — выклікаць душэўныя пакуты. ‖ *незак.* **надрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **надры́ў**, -ры́ву, *м.* (да 1 знач.) *і* **надрыва́нне**, -я, *н.*

**НАДА́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -рыцца; *зак.* **1.** *безас., з інф.* Прыйсціся, здарыцца. *Мне таксама надарылася там пабываць.* **2.** Выдацца, выпасці. *Вясна надарылася надзвычай ранняя.* **3.** Трапіцца, сустрэцца. *Надарыўся цікавы чалавек.* ‖ *незак.* **надара́цца**, -а́ецца.

**НА́ДАЎБЕНЬ**, -бня, *мн.* -бні, -бняў, *м.* **1.** Процітанкавая загарода з рэек, жалезабетонных бэлек, бярвення. **2.** Пра тупога, цвердалобага чалавека (разм., лаянк.). *Ну і н. жа ён!*

**НАДАЎЖЭ́Й**, *прысл.* На больш доўгі час.

**НАДА́ЦЬ**, -да́м, -дасі́, -да́сць; -дадзі́м, -дасце́, -даду́ць; нада́ў, -дала́, -дало́; нада́й; -да́дзены; *зак.* **1.** *што.* Даць, прыдаць чаму-н. якую-н. форму, выгляд, якасць, уласцівасць і пад. *Н. пастанове сілу закона. Н. сур’ёзны выраз твару.* **2.** *што.* Прысвоіць каму-н. званне, надзяліць паўнамоцтвамі і пад. *Н. званне заслужанага дзеяча навукі. Н. чын маёра.* **3.** *што.* Выявіць у якой-н. форме. *Н. гліне форму гаршка.* **4.** *перан., што.* Аднесціся, паставіцца пэўным чынам да чаго-н. *Н. вялікае значэнне гэтаму выпадку.* **5.** *што* і *чаго.* Павялічыць, зрабіць больш прыкметным што-н. у кім-, чым-н. *Н. рашучасці абмеркаванню падзеі.* ‖ *наз.* **нада́нне**, -я, *н.*

**НАДБА́ВІЦЬ**, -ба́ўлю, -ба́віш, -ба́віць; -ба́ўлены; *зак., што* і *чаго* (разм.). Тое, што і *набавіць.* ‖ *наз.* **надба́ўка**, -і, *ДМ* -ба́ўцы, *мн.* -і, -ба́вак, *ж.*

**НАДБА́ЎКА**, -і, *ДМ* -ба́ўцы, *мн.* -і, -ба́вак, *ж.* **1.** *гл.* надбавіць. **2.** Надбаўленая сума. *Атрымаць надбаўку.* ‖ *прым.* **надба́вачны**, -ая, -ае.

**НАДБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што* і *чаго* (разм.). Прыдбаць, намножыць чаго-н. *Н. дабра.*

**НАДБІ́ЦЬ**, -даб’ю́, -даб’е́ш, -даб’е́; -даб’ём, -даб’яце́, -даб’ю́ць; *зак., што.* Зрабіць невялікую расколіну. *Н. кубак. Н. яйцо.* ‖ *незак.* **надбіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАДБРО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Частка лба над брывамі.

**НАДБРО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца над брывамі. *Надброўныя дугі.*

**НАДБУДАВА́ЦЬ**, -дую, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак., што.* Пабудаваць зверху, павялічыць у вышыню. *Н. другі паверх.* ‖ *незак.* **надбудо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **надбудо́ўванне**, -я, *н. і* **надбудо́ва**, -ы, *ж.*

**НАДБУДО́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -до́ў, *ж.* **1.** *гл.* надбудаваць. **2.** Тое, што надбудавана. *Цагляная н. дома.* **3.** Сукупнасць ідэй і поглядаў грамадства (палітычных, прававых, рэлігійных, мастацкіх, філасофскіх), адпаведных ім устаноў і ідэалагічных грамадскіх адносін, якія вызначаюцца эканамічным базісам і, у сваю чаргу, уздзейнічаюць на яго. ‖ *прым.* **надбудо́ўчы**, -ая, -ае (да 3 знач.).

**НА́ДВАЕ**, *прысл.* На дзве часткі, папалам. *Разрэзаць н.* ◊ **Бабка надвае варажыла** (разм.) — яшчэ невядома, што будзе на справе, можа быць так і інакш.

**НАДВЕ́ЧАР**, *прысл.* Пад самы вечар; падвечар. *Н. вецер аціх.*

**НАДВІ́ЦЬ**, надаўю́, надаўе́ш, надаўе́; надаўём, надаўяце́, надаўю́ць; надві́ты; *зак., што* і *чаго.* **1.** Падоўжыць віццём. *Н. вяроўку.* **2.** Адматаць частку нітак з клубка. *Н. крыху нітак.* ‖ *незак.* **надвіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАДВО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца вышэй паверхні вады, у адрозненне ад падводнага. *Надводная частка карабля.* **2.** Які плавае па вадзе. *Н. флот.*

**НАДВО́Р**, *прысл.* **1.** Вонкі адкуль-н., за межы чаго-н.; *проціл.* ўнутр. *Выйсці н.* **2.** На знешні бок, навыварат. *Шэрсцю н.*

**НАДВО́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* Частка двара каля хаты, дома. *Прасторны н.*

**НАДВО́Р’Е**, -я, *н.* Стан атмасферы ў пэўны час у пэўным месцы. *Зводка надвор’я.*

**НАДВО́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Размешчаны ў межах сядзібы. *Надворныя будынкі.* **2.** Той, што выходзіць на двор, знадворны. *Надворная сцяна.* **3.** Тое, што і *знешні* (у 2 знач.). *Надворная замкнёнасць.* **4.** Такі, якога яшчэ не паставілі на адкорм (пра свіней). *Надворныя парасяты.* ○ **Надворны саветнік** — у дарэвалюцыйнай Расіі: цывільны чын сёмага класа.

**НАДВЯЗА́ЦЬ**, -вяжу́, -вя́жаш, -вя́жа; -вяжы́; -вя́заны; *зак., што.* **1.** Падоўжыць вязаннем. *Н. кофту.* **2.** Прывязаць да чаго-н. дадатковы кавалак. *Н. шнурок.* ‖ *незак.* **надвя́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **надвя́званне**, -я, *н. і* **надвя́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.*

**НАДВЯЧО́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* Пара перад самым вечарам. *Ціхі н.* ‖ *прым.* **надвячо́ркавы**, -ая, -ае.

**НАДВЯЧО́РКАМ**, *прысл.* Перад самым надыходам вечара. *З паходу вярнуліся н.*

**НАДВЯЧЭ́РНІ**, -яя, -яе. Які бывае перад заходам сонца, перад вечарам. *Надвячэрняя цішыня.*

**НА́ДГАЛАДЗЬ**, *прысл.* (разм.). Не поўнасцю наядаючыся, хочучы есці. *Леглі спаць н.*

**НАДГАРТА́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тонкі доўгі храсток, які дапамагае закрываць гартань пры ядзе. ‖ *прым.* **надгарта́нны**, -ая, -ае.

**НАДГАРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́ць; *зак.* Часткова згарэць. *Надгарэла лучына.* ‖ *незак.* **надга́рваць**, -ае *і* **надгара́ць**, -а́е.

**НАДГЛЯ́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Праверка, агляд. *Мытны н.* ‖ *прым.* **надгля́дны**, -ая, -ае.

**НАДГЛЯДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* (спец.). Рабіць нагляд.

**НАДГЛЯ́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто робіць нагляд. || *ж.* **надгля́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. || *прым.* **надгля́дчыцкі**, -ая, -ае.

**НАДГНІ́СЦІ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -гніе́; *зак.* Трошкі падгніць. *Яблык надгніў.* || *незак.* **надгніва́ць**, -а́е.

**НАДДА́ЦЬ**, -да́м, -дасі́, -да́сць; -дадзі́м, -дасце́, -даду́ць; -да́дзены; *зак.* (разм.) **1.** *што* і *чаго.* Дадаць, дабавіць да таго, што ўжо было раней. *Н. пары.* **2.** *чаго* і *без дап.* Павялічыць хуткасць. *Н. кроку. Н. ходу.* || *незак.* **наддава́ць**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць.

**НАДДЗЯЎБЦІ́**, -дзяўбу́, -дзяўбе́ш, -дзяўбе́; -дзяўбём, -дзеўбяце́, -дзяўбу́ць; наддзёўб, -дзяўбла́, -ло́; -дзяўбі́; -дзёўбаны; *зак., што.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вырваць дзюбай кавалачак чаго-н. зверху, з краю. *Н. спелую грушу.* **2.** Зрабіць долатам або якім-н. іншым інструментам паглыбленне на чым-н. || *незак.* **наддзёўбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАД'Е́ХАЦЬ**, -е́ду, -е́дзеш, -е́дзе; -е́дзь; *зак.* (разм.). Прыехаць у патрэбны момант. *А тут і дзеці над'ехалі.*

**НАДЗВЫЧАЙ**, *прысл.* Тое, што і *надзвычайна.*

**НАДЗВЫЧА́ЙНА**, *прысл.* **1.** У высокай ступені. *Н. адукаваны чалавек.* **2.** Вельмі, надта. *Адбылася н. прыемная размова.*

**НАДЗВЫЧА́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Выключны па якіх-н. якасцях. *Гэта быў н. талент.* **2.** Незвычайны, які вылучаецца адметнымі рысамі. *Надзвычайныя падзеі.* **3.** Крайні, выключны. *Надзвычайныя меры пакарання.* **4.** Экстранны, спецыяльна прызначаны, прыняты, скліканы. *Н. з'езд.* || *наз.* **надзвыча́йнасць**, -і, *ж.*

**НАДЗЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Такі, на якога можна спадзявацца, трывалы, моцны; пэўны. *Н. чалавек. Надзейнае ўмацаванне.* || *наз.* **надзе́йнасць**, -і, *ж.*

**НАДЗЕ́Л**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. *гл.* надзяліць. **2.** -а. Зямельны ўчастак, які выдаваўся сялянскай сям'і. *Зямельны н.* || *прым.* **надзе́льны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**НАДЗЕ́МНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца над паверхняй зямлі або на паверхні зямлі. *Надземныя збудаванні.*

**НАДЗЕ́РЦІ**, -дзяру́, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзяро́м, -дзерацe, -дзяру́ць; надзёр, -дзе́рла; надзяры́; -дзёрты; *зак., чаго.* Тое, што і *надраць.* || *незак.* **надзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАДЗЕ́ЦЬ**, -дзе́ну, -дзе́неш, -дзе́не; -дзе́нь; -дзе́ты; *зак., што.* **1.** Адзець на сябе або на каго-н. вопратку, абутак і пад. *Н. паліто.* **2.** Уздзець, прыладзіць які-н. прадмет на каго-, што-н. *Н. пярсцёнак. Н. акуляры.* || *незак.* **надзява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *звар.* **надзе́цца**, -дзе́нуся, -дзе́нешся, -дзе́нецца; -дзе́нься; *незак.* **надзява́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. || *наз.* **надзява́нне**, -я, *н.*

**НАДЗЕ́Я**, -і, *мн.* -і, -дзе́й, *ж.* **1.** Чаканне чаго-н. добрага, упэўненасць у ажыццяўленні чаго-н. *Светлая н. Страціць надзею.* **2.** Той, або тое, на каго, на што можна спадзявацца, апірацца. *Сын — уся мая н.* ◊ **Падаваць надзеі** — выяўляць якія-н. задаткі, праяўляць здольнасці да чаго-н.

**НАДЗЁННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае важнае жыццёвае значэнне, неабходны; актуальны. *Надзённыя задачы.* **2.** Які бывае кожны дзень. *Надзённыя клопаты.* ◊ **Надзённы хлеб** — самае неабходнае для жыцця. || *наз.* **надзённасць**, -і, *ж.*

**НАДЗЁНШЧЫНА**, -ы, *ж.* (разм.). Надзённыя клопаты; тое, што бывае кожны дзень. *Надакучыла н.*

**НАДЗІВІ́ЦЦА**, -дзіўлю́ся, -дзі́вішся, -дзі́віцца; *зак., з каго-чаго* і *без дап.* (звычайна з дзеясловам «магчы» і адмоўем.). Многа, уволю падзівіцца. *Не н. з прыгажосці Нарачанскага краю.*

**НАДЗЬМУ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Важны, ганарысты, поўны пыхі. *Ён заўсёды нейкі н.* **2.** *перан.* Пакрыўджаны, незадаволены, сярдзіты, які выражае крыўду. *Н. выгляд.* || *наз.* **надзьму́тасць**, -і, *ж.*

**НАДЗЬМУ́ЦЦА**, -дзьму́ся, -дзьме́шся, -дзьме́цца; -дзьмёмся, -дзьмяце́ся, -дзьму́цца; -дзьмі́ся; *зак.* **1.** Напоўніцца паветрам, газам, зрабіцца пругкім; нацягнуцца ад ветру. *Ветразь надзьмуўся.* **2.** Пра птушак: натапырыцца, падняўшы пер'е. **3.** *перан.* Пакрыўдзіцца, нахмурыцца, зрабіць незадаволены выраз твару (разм.). **4.** *перан.* Стаць важным, прыняць ганарысты выгляд (разм.). ◊ **Надзьмуцца як мыш на крупы** (разм.) — пра чалавека, які мае пакрыўджаны, незадаволены выгляд. || *незак.* **надзіма́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**НАДЗЬМУ́ЦЬ**, -дзьму́, -дзьме́ш, -дзьме́; -дзьмём, -дзьмяце́, -дзьму́ць; -дзьмі́; -дзьму́ты; *зак.* **1.** *што.* Напоўніць паветрам або газам, зрабіць пругкім; нацягнуць што-н. ветрам. *Н. ветразь. Н. мяч.* **2.** *чаго, безас.* Нанесці ветрам. *Н. снегу.* **3.** *безас.* Ад ветру, скразняку і пад. прастудзіцца, захварэць. *Надзьмула ў вуха.* ◊ **Надзьмуць губы** (разм., неадабр.) — пакрыўдзіцца. || *незак.* **надзіма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **надзіма́нне**, -я, *н.*

**НАДЗЯЛІ́ЦЬ**, -дзялю́, -дзе́ліш, -дзе́ліць; -дзе́лены; *зак., каго-што кім-чым.* **1.** Даць у асабістае карыстанне, выдзеліць як долю. *Н. зямлёю.* **2.** Даць як гасцінец, падарунак, падарыць. *Н. дзяцей цукеркамі.* **3.** *перан.* Адарыць каго-н. якімі-н. якасцямі (сілай, здольнасцямі і пад.). *Н. вялікай сілай волі. Н. уладай.* || *незак.* **надзяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **надзе́л**, -у, *м.* і **надзяле́нне**, -я, *н.*

**НАДКАЛЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца вышэй калена. *Надкаленная косць.*

**НАДКАЛО́ЦЬ**, -калю́, -ко́леш, -ко́ле; -ко́латы; *зак., што.* **1.** Раскалоць не поўнасцю. *Н. талерку.* **2.** Расшчапіць крыху зверху. *Н. палена.* || *незак.* **надко́лваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАДКЛА́САВЫ**, -ая, -ае. Які стаіць вышэй класавых інтарэсаў, класавых груповак.

**НАДКО́СНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Злучальная тканка, якая пакрывае паверхню касцей у чалавека і пазваночных жывёл. *Запаленне надкосніцы.* || *прым.* **надко́снічны**, -ая, -ае.

**НАДКРЫЛЫ**, -аў. Цвёрдыя пярэднія крылы жукоў і перапончатакрылых насякомых.

**НАДКУ́С**, -у, *м.* Надкушанае месца. *Н. на яблыку.*

**НАДКУСІ́ЦЬ**, -кушу́, -ку́сіш, -ку́сіць; -ку́шаны; *зак., што.* Пракусіць крыху або адкусіць частку чаго-н. *Н. яблык.* || *незак.* **надку́сваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **надку́сванне**, -я, *н.*

**НАДЛАМА́ЦЦА**, -ламлю́ся, -ло́мішся, -ло́міцца; -лама́ўся, -ма́лася; -ламі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Атрымаць трэшчыну, не пераламацца зусім. *Сук надламаўся.* **2.** *перан.* Страціць фізічныя або душэўныя сілы; аслабець. *Здароўе надламалася.* **3.** *перан.* Стаць іншым, змяніцца. *У іх узаемаадносінах нешта надламалася.* || *незак.* **надло́мвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАДЛАМА́ЦЬ**, -ламлю́, -ло́міш, -ло́міць; -лама́ў, -ма́ла; -ламі́; -лама́ны *і* -ло́млены; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць трэшчыну, не зламаўшы зусім. *Н. сук дрэва.* **2.** *перан., каго-што.* Аслабіць, падарваць. *Н. здароўе.* || *незак.* **надло́мліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **надло́мваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **надло́мліванне**, -я, *н. і* **надло́мванне**, -я, *н.*

**НАДЛІ́ЦЬ**, надалью́, надалье́ш, надалье́; надальём, надальяце́, надалью́ць; *зак., чаго з чаго.* Выліць частку вадкасці з чаго-н. *Н. малака з дайніцы.*

**НАДЛО́М**, -у, *м.* **1.** Надламанае месца. *Н. косці.* **2.** *перан.* Рэзкае аслабленне фізічных і душэўных сіл у выніку якога-н. перажывання. *Душэўны н.* **3.** *перан.* Празмерная рэзкасць у праяўленні пачуццяў. *Сказаць з надломам у голасе.*

**НАДМАГІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца над магілай, на магіле. *Н. камень.*

**НАДМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які перавышае меру, вельмі вялікі па велічыні, памерах, сіле і пад. *Н. цяжар.*

**НАДМУРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* Тое, што надбудавана над чым-н.; надбудаваная частка (у мураваным будынку). || *прым.* **надмуро́вачны**, -ая, -ае.

**НАДНЫ́РАЧНІКІ**, -аў, *адз.* надны́рачнік, -а, *м.* Залозы ўнутранай сакрэцыі ў чалавека і вышэйшых пазваночных жывёл, якія знаходзяцца на верхнім баку нырак.

**НАДНЫ́РАЧНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца над верхняй часткай нырак.

**НАДО́Й**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Колькасць надоенага малака. *Павялічыць надоі.* || *прым.* **надо́йны**, -ая, -ае.

**НАДО́ЙВАЦЬ** *гл.* надаіць.

**НАДО́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік, які выконвае даручаную яму працу дома

згодна з дамовай, заключанай з прадпрыемствам. ‖ *ж.* **надо́мніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **надо́мніцкі**, -ая, -ае.

**НАДО́МНІЦТВА**, -а, *н.* Выкананне даручанай работы дома; дзейнасць, праца надомніка. *Развіццё надомніцтва.*

**НАДО́МНЫ**, -ая, -ае. Які выконваецца дома. *Надомныя работы.*

**НАДО́ЎГА**, *прысл.* На працяглы час. *Паехаць н.*

**НАДПАРО́ЦЬ**, -пару́, -по́раш, -по́ра; -пары́; -по́раты; *зак., што.* Трохі распароць. *Н. падкладку.* ‖ *незак.* **надпо́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАДПІЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак., што.* Распілаваць крыху, не да канца. *Н. дошку.* ‖ *незак.* **надпіло́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **надпіло́ўванне**, -я, *н. і* **надпіло́ўка**, -і, *ДМ* -ло́ўцы, *ж.*

**НА́ДПІС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кароткі тэкст, змешчаны на якім-н. прадмеце. *Памятны н. Н. на канверце.*

**НАДПІСА́ЦЬ**, -пішу́, -пі́шаш, -пі́ша; -пішы́; -пі́саны; *зак., што.* **1.** Зрабіць на чым-н. надпіс. *Н. канверт. Н. кнігу.* **2.** Змясціць надпіс зверху чаго-н. напісанага, намаляванага. *Н. над радком.* ‖ *незак.* **надпі́сваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **надпі́сванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **надпі́ска**, -і, *ДМ* -пі́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.*

**НАДПІ́СКА**, -і, *ДМ* -пі́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** *гл.* надпісаць. **2.** Тое, што змешчана зверху чаго-н. напісанага. *У рукапісе шмат надпісак.*

**НАДРАБІ́ЦЬ**[1], -раблю́, -ро́біш, -ро́біць; -ро́блены; *зак., што.* Падоўжыць, павялічыць вязаннем што-н. *Н. панчоху.* ‖ *незак.* **надрабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **надро́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.*

**НАДРАБІ́ЦЬ**[2], -раблю́, -ро́біш, -ро́біць; -ро́блены; *зак., чаго.* Разбіўшы, разламаўшы на дробныя часткі, нагатаваць нейкую колькасць чаго-н. *Н. шчэбеню.*

**НАДРАБНІ́ЦЬ**, -рабню́, -ро́бніш, -ро́бніць; -рабнёны; *зак., чаго.* Раскрышыць на дробныя кавалкі нейкую колькасць чаго-н. *Н. цэглы.*

**НАДРАДКО́ВЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца, змешчаны над радком. *Н. знак.*

**НАДРА́ІЦЬ** *гл.* драіць.

**НАДРА́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *чаго.* Нарабіць драпін на чым-н. *Н. на стале.* **2.** *што.* Неразборліва напісаць (разм.). *Н. ліст.* ‖ *незак.* **надра́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАДРА́ЦЬ**, -дзяру́, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзяро́м, -дзераце́, -дзяру́ць; надзяры́; -дра́ны; *зак.* **1.** *чаго.* Аддзіраючы, нарыхтаваць нейкую колькасць. *Н. вязку лыка. Н. кары.* **2.** *чаго.* Навырываць чаго-н. *Н. моху.* **3.** *чаго.* Разрываючы на часткі, нарваць у нейкай колькасці. *Н. паперы.* **4.** *чаго.* Зняць абалонку з зярнят, ператвараючы іх у крупы. *Н. круп.* **5.** *чаго.* Нацерці на тарцы чаго-н. *Н. бульбы.* **6.** *што.* Начасаць, расчасаць скуру чым-н. цвёрдым (разм.). *Н. спіну.* ‖ *незак.* **надзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАДРУКАВА́ЦЦА** *гл.* друкавацца.

**НАДРУКАВА́ЦЬ** *гл.* друкаваць.

**НАДРЫВА́ННЕ** *гл.* надарвацца, надарваць.

**НАДРЫВА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* надарвацца. **2.** *перан.* Рабіць што-н. праз меру, старацца з усіх сіл. **3.** Крычаць з усіх сіл.

**НАДРЫВА́ЦЬ** *гл.* надарваць.

**НАДРЫ́ВІСТЫ**, -ая, -ае. Рэзкі, сутаргавы, з надрывам (у 3 знач.); прарэзлівы. *Н. кашаль.* ‖ *наз.* **надры́вістасць**, -і, *ж.*

**НАДРЫ́Ў**, -ры́ву, *м.* **1.** *гл.* надарваць. **2.** Надарванае месца. *Вяроўка з надрывам.* **3.** *перан.* Празмернае фізічнае напружанне. *З надрывам працуе рухавік.* **4.** *перан.* Узбуджанасць, хваравітасць у праяўленні пачуццяў. *Гаварыць з надрывам.*

**НАДРЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Рэзкі, хваравіта напружаны, з надрывам (у 3 знач.). *Н. голас.*

**НАДРЭ́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* надрэзаць. **2.** Надрэзанае месца. *Н. на дрэве.*

**НАДРЭ́ЗАЦЬ**, -рэ́жу, -рэ́жаш, -рэ́жа; -рэ́ж; -рэ́заны; *зак., што.* Разрэзаць крыху, не да канца. *Н. край дошкі.* ‖ *незак.* **надраза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **надрэ́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **надрэ́з**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.*

**НАДСТА́ВІЦЬ**, -та́ўлю, -та́віш, -та́віць; -та́ўлены; *зак., што.* Дабаўляючы, зрабіць больш высокім, доўгім. *Н. рукавы.* ‖ *незак.* **надстаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **надста́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -та́вак, *ж.*

**НАДСЯЧЫ́** *і* **НАДСЕ́КЧЫ**, -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; надсе́к, -кла; -сячы́; -се́чаны; *зак., што.* Рассячы трохі, не да канца. *Н. палена.* ‖ *незак.* **надсяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **надсяка́нне**, -я, *н.*

**НА́ДТА**, *прысл.* **1.** У вялікай ступені, вельмі. *Н. стаміцца. Н. моцны мароз.* **2.** *у знач. вык.* Звыш меры, празмерна. *Гэта ўжо н.* ◊ **Не надта (што)** (разм.) — не вельмі, так сабе.

**НАДТРЭ́СНУТЫ**, -ая, -ае. **1.** З невялікай трэшчынай. *Надтрэснутая шклянка.* **2.** *перан.* Які хрыпіць (пра голас, гукі). *Н. голас.*

**НАДУ́МАНЫ**, -ая, -ае. Штучны, пазбаўлены дастатковых падстаў. *Н. сюжэт.* ‖ *наз.* **наду́манасць**, -і, *ж.*

**НАДУ́МАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Выпашыць зрабіць што-н. *Надумаліся паехаць на Нарач.* **2.** Многа падумаць. *Як надумаешся, дык заснуць не можаш ноччу.*

**НАДУ́МАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што і з інф.* Задумаць зрабіць што-н., прыняць якое-н. рашэнне. *Як надумала, так і зраблю.* ‖ *незак.* **наду́мваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАДУШЫ́ЦЦА** *гл.* душыць[2].

**НАДУШЫ́ЦЬ**[1], -душу́, -ду́шыш, -ду́шыць; -ду́шаны; *зак., каго-чаго* (разм.). Раздушыць, расплюшчыць нейкую колькасць каго-, чаго-н. *Н. ягад.*

**НАДУШЫ́ЦЬ**[2] *гл.* душыць[2].

**НАДХВО́СЦЕ**, -я, *н.* Частка апярэння ў птушак, што знаходзіцца на спіне каля хваста.

**НАДХМА́Р'Е**, -я, *н.* Прастора над хмарамі. *Выглянуў месяц з надхмар'я.* ‖ *прым.* **надхма́рны**, -ая, -ае.

**НАДЫМІ́ЦЬ** *гл.* дыміць.

**НАДЫСЦІ́**, надыду́, нады́дзеш, нады́дзе; надышо́ў, -шла́, -шло́; надыдзі́; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Настаць, наблізіцца. *Надышоў час расстання.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ахапіць, авалодаць. *Зноў надышоў страх.* **3.** Прыйсці, з'явіцца куды-н. (разм.). *Неўзабаве надышлі астатнія.* ‖ *незак.* **надыхо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **надыхо́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 знач.).

**НАДЫ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., чым і без дап.* Уволю, многа падыхаць. *Н. горным паветрам.*

**НАДЫ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** Нагрэць паветра дыханнем. *Н. у вагоне.* **2.** Дыхнуць, падыхаць некалькі разоў на што-н. *Н. на замёрзлую шыбу.*

**НАДЭБАШЫ́РЫЦЬ** *гл.* дэбашырыць.

**НАЕ́ДАК**, -дку, *м.* (разм.). Тое, чым можна наесціся; пажыва. *Цукеркі — гэта не н.*

**НА́ЕДЗЬ**, -і, *ж.* Камень на зубах у каня. *Конь дужа стары — бачыш на зубах якая н.*

**НАЕ́ЗД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* наехаць. **2.** Прыезд каго-н. куды-н. на нейкі час. *Н. турыстаў.* **3.** Раптоўны набег, напад вялікай колькасці каго-, чаго-н. *Спусташальны н.* **4.** *у знач. прысл.* **нае́здам**. Прыязджаючы зрэдку і ненадоўга. *Бываў у вёсцы н.*

**НАЕ́ЗДЖЫ**, -ая, -ае (разм.). Які прыехаў, наехаў адкуль-н. *Н. люд.*

**НАЕ́ЗДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *што і без дап.* Праездзіць нейкі час; ездзячы, праехаць пэўную колькасць кіламетраў. *Н. тысячы кіламетраў.* **2.** *што.* Частай яздой пракласці, утрамбаваць дарогу. *Н. шлях.*

**НАЕ́ЗНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які добра ездзіць вярхом; спецыяліст па верхавой яздзе. *Цыркавы н.* ‖ *ж.* **нае́зніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **нае́зніцкі**, -ая, -ае.

**НАЕ́СЦІ**, -е́м, -ясі́, -е́сць; -ядзі́м, -ясце́, -яду́ць; -е́ў, -е́ла; нае́ш; *зак.* (разм.). **1.** *чаго і без дап.* З'есці ў нейкай колькасці, на якую-н. суму. *Н. ў рэстаране на вялікую суму.* **2.** *перан., што і чаго.* Атрымаць, нажыць у выніку сытнай яды. *Жывот н.* ‖ *незак.* **наяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАЕ́СЦІСЯ**, -е́мся, -ясі́ся, -е́сца; -ядзі́мся, -ясце́ся, -яду́цца; нае́ўся, -е́лася; нае́шся; *зак.* Пад'есці, перастаць быць галодным. *Н. ўволю.* ‖ *незак.* **наяда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**НАЕ́ХАЦЬ**, -е́ду, -е́дзеш, -е́дзе; -е́дзь; *зак.* **1.** *на каго-што.* Наткнуцца на каго-, што-н. у час язды. *Н. на пешахода.* **2.** (*1 і 2 ас. адз. не ўжыв.*). Прыехаць у вялікай колькасці. *К вечару наехалі госці.* **3.** *перан., на што.* Ссунуцца са свайго месца, засла-

ніўшы сабой што-н. (разм.). *Шапка наехала на вочы.* || *незак.* **наязджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **нае́зд**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.*

**НАЁМ** *гл.* наняць.

**НАЁМНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Ваеннаслужачы наёмнага войска. *Вярбоўка наёмнікаў.* **2.** Той, хто за плату гатоў здзейсніць злачынства, выгаднае наймальніку. *Няма апраўдання наёмнікам і тэрарыстам.* **3.** Тое, што і *наймі́т.* || *ж.* **наёмніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. || *прым.* **наёмніцкі**, -ая, -ае.

**НАЁМНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які працуе па найме або які выконваецца наёмнай сілай. *Н. рабочы. Наёмная праца.* **2.** Які здаецца ў наём за пэўную плату. *Наёмная кватэра.* **3.** Падкуплены, прадажны. *Н. забойца.*

**НАЖАБРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., чаго.* Просячы, жабруючы, назбіраць. *Н. рознага дабра.*

**НАЖАВЫ́** *гл.* нож.

**НАЖАХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). Перажыць страх, страшныя часы.

**НАЖАХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго* (разм.). Нагнаць страху, напужаць.

**НАЖА́ЦЬ**, -жну́, -жне́ш, -жне́; -жнём, -жняце́, -жну́ць; -жні́; -жа́ты; *зак., чаго.* Зжаць у якой-н. колькасці. *Н. капу жыта.*

**НАЖДА́К**, -у́, *м.* Дробназярністая горная парода, якая ўжываецца для шліфоўкі або чысткі металічных вырабаў. || *прым.* **нажда́чны**, -ая, -ае. *Наждачная папера.*

**НАЖНІ́ЦЫ**, -ніц. Інструмент для рэзання, стрыжкі, які складаецца з двух накрыж змацаваных нажоў з ручкамі ў выглядзе кольцаў. *Хірургічныя н.* || *прым.* **нажні́чны**, -ая, -ае.

**НАЖНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* нага. **2.** Які прыводзіцца ў дзеянне нагамі. *Н. тормаз.*

**НАЖО́ЎКА**, -і, *ДМ* -жо́ўцы, *мн.* -і, -жо́вак, *ж.* **1.** Вузкая ручная піла з адной ручкай. **2.** Ручная машына з дробна назубленым палатном. || *прым.* **нажо́вачны**, -ая, -ае.

**НАЖЫВА**, -ы, *ж.* Лёгкі даход, атрыманы не ў выніку працы; нажыванне грошай, матэрыяльных каштоўнасцей. *Прага да нажывы.*

**НАЖЫТАК**, -тку, *м.* Тое, што нажыта, набыта, куплена. *Хатні н.* || *прым.* **нажытны́**, -а́я, -о́е.

**НАЖЫЎНЫ́**, -а́я, -о́е. Такі, які можна нажыць, набыць. *Вопыт — справа нажыўная.*

**НАЖЫ́ЦЦА**, -жыву́ся, -жыве́шся, -жыве́цца; -жывёмся, -жываце́ся, -жыву́цца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Быць набытым у выніку практыкі. *Вопыт з гадамі нажывецца.* **2.** *на чым.* Атрымаць прыбытак, абагаціцца. *Н. на чужым горы. Н. на махінацыях.* **3.** Пражыць доўгі час, многа пажыць (разм.). *Нажыўся за свой век, усяго пабачыў.* || *незак.* **нажыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (да 1 і 2 знач.).

**НАЖЫ́ЦЬ**, -жыву́, -жыве́ш, -жыве́; -жывём, -жываце́, -жыву́ць; -жы́ты; *зак.* **1.** *што і чаго.* Паступова набыць, назапасіць. *Н. сваёй працай.* **2.** *перан., каго-што і каго-чаго.* Атрымаць, набыць (што-н. непрыемнае). *Н. рэўматызм.* **3.** Пражыць нейкі час (разм.). *У гасцях доўга не нажывеш.* || *незак.* **нажыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 і 2 знач.).

**НАЗА́Д**, *прысл.* **1.** У адваротным напрамку. *Азірнуцца н.* **2.** На ранейшае месца, у ранейшае становішча. *Аднясі вядро н. у хату.* ◊ **Браць (узяць) словы назад** — адмаўляцца (адмовіцца) ад сказанага, абяцанага.

**НАЗАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., каму і без дап.* Часта прыставаць да каго-н., турбаваць каго-н., дакучаць каму-н. *Было ўсё добра, толькі камары назалялі.* || *наз.* **назаля́нне**, -я, *н.*

**НАЗАПА́СІЦЬ**, -па́шу, -па́сіш, -па́сіць; -па́шаны; *зак., чаго.* Нарыхтаваць пэўную колькасць чаго-н. *Н. сена на зіму.* || *незак.* **назапа́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЗАЎЖДЫ́**, *прысл.* Тое, што і *назаўсёды.*

**НАЗАЎСЁДЫ**, *прысл.* На ўвесь час, на ўсё жыццё. *Расстацца н.*

**НАЗА́ЎТРА**, *прысл.* На наступны дзень. *Пасяджэнне перанесена н.*

**НАЗБІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-чаго.* Сабраць за некалькі прыёмаў у нейкай колькасці. *Н. вядро ягад.* **2.** *каго (чаго).* Запрасіць сабрацца ў адно месца для арганізацыі чаго-н. *Н. народу.* **3.** *чаго.* Паступова збіраючы або адкладваючы, назапасіць значную колькасць чаго-н. *Н. грошай на кватэру.*

**НА́ЗВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Абазначэнне словам прадмета, з'явы, паняцця і пад.; найменне чаго-н. *Прысвоіць назву плошчы. «Курган» — н. паэмы Янкі Купалы. Бабуля ведала назвы ўсіх мясцовых раслін.* **2.** часцей *мн.* Асобнае выданне (кніга, часопіс і пад.), незалежна ад колькасці тамоў, з якіх яно складаецца. *У бібліятэцы 50 тысяч назваў, 80 тысяч тамоў.* ◊ **Адна толькі назва** (разм., неадабр.) — аб кім-, чым-н., што не адпавядае свайму прызначэнню. *Адна толькі н. што каваль.*

**НАЗВА́ЦЦА**, -заву́ся, -заве́шся, -заве́цца; -завёмся, -завяце́ся, -заву́цца; -заві́ся; *зак.* **1.** *кім-чым.* Прыняць, узяць сабе якую-н. назву, імя і пад. *Н. кантралёрам.* **2.** *кім-чым.* Сказаць, паведаміць сваё імя, прозвішча і пад.; адрэкамендавацца. *Урач увайшоў у пакой і назваўся.* **3.** Напрасіцца, навязацца да каго-н. з чым-н. (разм.). *Н. ў памочнікі.* || *незак.* **называ́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**НАЗВА́ЦЬ**[1], -заву́, -заве́ш, -заве́; -завём, -завяце́, -заву́ць; -заві́; -зва́ны; *зак., каго-што.* **1.** *кім-чым.* Даць імя, найменне каму-, чаму-н. *Н. дачку Святланай. Н. вуліцу Акадэмічная.* **2.** Сказаць сваё імя і прозвішча, назву каго-, чаго-н.; адрэкамендаваць. *Хлопец назваў сваё прозвішча.* **3.** Паведаміць, аб'явіць. *Ён назваў неверагодную лічбу.* **4.** Вызначыць, ахарактарызаваць. *Ну як н. такі ўчынак?* || *незак.* **называ́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **называ́нне**, -я, *н.*

**НАЗВА́ЦЬ**[2], -заву́, -заве́ш, -заве́; -завём, -завяце́, -заву́ць; -заві́; -зва́ны; *зак., каго (чаго).* Тое, што і *наззываць* (разм.). *Н. гасцей поўную хату.*

**НАЗВІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., чаго.* **1.** Скручваючы пасмы, ніці, звіць нейкую колькасць чаго-н. *Н. вяровак.* **2.** Намотваючы, звіць у клубок, маток вялікую колькасць чаго-н. *Н. ніток у клубкі.* **3.** Матаючы, зняць з чаго-н. у вялікай колькасці, разматаць. *Н. пражы з матавіла.* **4.** Зляпіць, збудаваць нейкую колькасць чаго-н. *Ластаўкіназвівалі гнёздаў у падстрэшшы.*

**НАЗВО́ЗІЦЬ**, -звóжу, -звóзіш, -звóзіць; *зак., чаго.* Звезці вялікую колькасць чаго-н. у некалькі прыёмаў. *Н. бярвення.*

**НАЗГРАБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* Зграбці вялікую колькасць чаго-н. *Н. некалькі коп сена.*

**НАЗДЗЕ́КАВАЦЦА**, -куюся, -куешся, -куецца; -куйся; *зак., з каго-чаго.* **1.** Вельмі абразіць, прынізіць, зняважыць каго-н. **2.** Фізічна ўздзейнічаць на каго-н.; пабіць. *Хопіць, наздзекаваліся з чалавека.*

**НАЗДРАВА́ТЫ**, -ая, -ае. З невялікімі адтулінамі, дзірачкамі; порысты. *Н. сыр. Н. шлак.* || *наз.* **наздрава́тасць**, -і, *ж.*

**НАЗДРАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* (спец.). Наздраватае, порыстае месца, сітавіна. || *прым.* **наздраві́нны**, -ая, -ае.

**НАЗДРА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). З вялікімі ноздрамі. *Наздратая пыса.* || *наз.* **наздра́тасць**, -і, *ж.*

**НАЗЕ́МНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца, дзейнічае або праводзіцца на паверхні зямлі, на сушы. *Наземныя збудаванні. Наземныя войскі.*

**НАЗЗЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго (чаго).* Склікаць у вялікай колькасці. *Н. гасцей.*

**НАЗІРА́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* Здольнасць бачыць, заўважаць факты, з'явы, якіх не бачаць, не заўважаюць іншыя. *У мастака добрая н.*

**НАЗІРА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто назірае, ажыццяўляе кантроль за кім-, чым-н. *Уважлівы н. Ваенны н.* || *ж.* **назіра́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. || *прым.* **назіра́льніцкі**, -ая, -ае.

**НАЗІРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прызначаны для назірання. *Назіральная вышка.* **2.** Той, хто валодае назіральнасцю, умее назіраць (у 1 знач.). *Н. чалавек.*

**НАЗІРА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* назіраць. **2.** *мн.* -і, -яў. Тое, што заўважана ў працэсе вывучэння, разгляду чаго-н., нагляданняў за кім-, чым-н. *Навуковыя назіранні.*

**НАЗІРА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* Бываць, здарацца; адзначацца. *У тэксце назіраюцца памылкі.*

**НАЗІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *каго-што, за кім-чым, са злуч.* «што» або «як». Уважліва сачыць вачыма за кім-, чым-н., не спускаць з вачэй. *Н. зацьменне сонца. Н. за палётам птушкі.* **2.** *каго-што.*

Вывучаць, даследаваць. *Н. развіццё клетак расліны.* **3.** *за кім-чым.* Ажыццяўляць нагляд за кім-, чым-н. *Н. за дзецьмі. Н. за парадкам.* ‖ *наз.* **назіра́нне**, -я, *н.*

**НА́ЗІРКАМ**, *прысл.* Не спускаючы з вачэй (ісці, бегчы следам за кім-, чым-н.). *За незнаёмым н. краўся хлопчык.*

**НАЗЛО́**, *прысл.* Наперакор, з намерам раззлаваць. *Рабіць н.*

**НАЗНА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Прызначыць на якую-н. пасаду, працу. *Н. загадчыкам кафедры.* **2.** *што.* Намеціць, вызначыць тэрмін. *Н. сустрэчу на вечар.* **3.** *што.* Устанавіць (зарплату, пенсію і пад.). *Н. пенсію.* **4.** *што.* Прысудзіць (у якой-н. гульні). *Н. штрафны ўдар.* **5.** *што.* Паставіць знак, пазначыць меткай. *Н. дрэвы на высечку.* ‖ *незак.* **назнача́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **назначэ́нне**, -я, *н.*

**НАЗНАЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* назначыць. **2.** Тое, што і *прызначэнне.* **3.** Прадпісанне ўрача. *Запісаць у картку н. хвораму.*

**НАЗО́ЙЛІВЫ**, -ая, -ае. Такі, які назаляе, дакучае; надаедлівы. *Назойлівыя мухі. Н. дождж.* ‖ *наз.* **назо́йлівасць**, -і, *ж.*

**НАЗО́ЛА**, -ы (разм.). **1.** *ж.* Дакука, назалянне. **2.** *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -зо́л. Той (тая), хто дакучае. *Не чалавек, а н.*

**НАЗО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** У граматыцы: часціна мовы, якая абазначае прадмет або апрадмечанае паняцце, мае катэгорыю роду і змяняецца па склонах і ліках. **2.** У матэматыцы: лік у простых дробах, які паказвае, на колькі частак падзелена адзінка. ‖ *прым.* **назо́ўнікавы**, -ая, -ае.

**НАЗО́ЎНЫ**. У выразе: **назоўны склон** — склон, які адказвае на пытанні: хто? што?

**НАЗУБІ́ЦЬ**, -зублю́, -зу́біш, -зу́біць; -зу́блены; *зак., што* і *чаго* (спец.). Навастрыць, наразаючы або насякаючы зубцы. *Н. серп.* ‖ *незак.* **назу́бліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **назу́бліванне**, -я, *н.*

**НАЗУБО́К**, *прысл.* (разм.). Вельмі добра, на памяць. *Вывучыць н.*

**НАЗУСІ́М**, *прысл.* (разм.). Назаўсёды, зусім. *Вярнуцца н. Аддаць н.*

**НАЗЫВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае адносіны да называння. *Называльная функцыя слова.*

**НАЗЫВА́ННЕ** *гл.* назваць[1].

**НАЗЫВА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* назвацца. **2.** Мець якое-н. імя, прозвішча, якую-н. назву. *Вёска называецца Малінаўка.* **3.** Браць на сябе выкананне якіх-н. абавязкаў, якой-н. справы. *Згаджаліся многія, але ніхто першым не называўся.* **4.** *у знач. пабочн. сл.* Зрабіць не так, як хацелася б, як трэба. *Пры сустрэчы штосьці буркнуў, называецца, прывітаўся.* ◊ **Што называецца**, *у знач. пабочн. сл.* (разм.) — як кажуць, як прынята гаварыць.

**НАЗЫВА́Ць**[1] *гл.* назваць[1].

**НАЗЫЎНЫ́**, -а́я, -о́е. У выразе: **назыўны сказ** — аднасастаўны сказ, у якім галоўны член выражаны формай назоўнага склону назоўніка.

**НАІ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Прастадушны, які не набыў, не мае жыццёвага вопыту. *Н. хлопец. Наіўнае пытанне.* ‖ *наз.* **наі́ўнасць**, -і, *ж.*

**НАЙ...**, *прыстаўка.* Ужыв. пры ўтварэнні найвышэйшай ступені прыметнікаў і прыслоўяў і надае ім значэнне самай высокай ступені якасці, напр.: *найлепшы, найчасцей.*

**НАЙБО́ЛЕЙ**, *прысл.* Тое, што і *найбольш.*

**НАЙБО́ЛЬШ**, *прысл.* Больш за іншых, асабліва. *Н. старанны вучань.*

**НАЙБО́ЛЬШЫ**, -ая, -ае. Самы вялікі, самы большы. *Н. поспех.*

**НАЙГРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Уволю пайграць на якім-н. музычным інструменце.

**НАЙГРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** Сыграць на музычным інструменце многа чаго. **2.** *што.* Перадаць асноўны матыў. *Н. мелодыю.* **3.** *што.* Сыграць для гуказапісу. **4.** *што.* Зрабіць лепшым, мілагучным ад працяглай ігры. *Н. скрыпку.*

**НА́ЙГРЫШ**, -у, *м.* **1.** *мн.* -ы, -аў. Народная інструментальная мелодыя, часцей танцавальная. **2.** Ненатуральнасць, штучная напружанасць у ігры артыста і наогул у паводзінах, манерах. *Дэкламаваць з найгрышам. Гаварыць шчыра, без найгрышу.*

**НАЙЛЕ́ПШЫ**, -ая, -ае. Самы лепшы. *Н. сябра.*

**НАЙМ** *гл.* наняць.

**НАЙМА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая наймае каго-, што-н. ‖ *ж.* **найма́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **найма́льніцкі**, -ая, -ае.

**НАЙМА́ЦЦА** *гл.* наняцца.

**НАЙМА́ЦЬ** *гл.* наняць.

**НАЙМЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Назва, імя. *Афіцыйнае н.*

**НАЙМЕ́ННЫ**, -ая, -ае (спец.). Названы, абазначаны. ○ **Найменны лік** — лік, пры якім стаіць назва адзінкі вымярэння (напр., 7 кілаграмаў, 5 метраў).

**НАЙМЕ́НШ**, *прысл.* Менш за ўсё. *Н. выгадны варыянт.*

**НАЙМЕ́НШЫ**, -ая, -ае. Самы малы. *Найменшая часцінка.*

**НА́ЙМІТ**, -а, *М* -міце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Наёмны работнік, парабак. **2.** *перан.* Той, хто з карыслівымі намерамі служыць чым-н. мэтам, хто прадаўся каму-н. (пагард.). *Фашысцкія найміты.* ‖ *прым.* **на́йміцкі**, -ая, -ае.

**НА́ЙМІЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Наёмная работніца, служанка; парабчанка. *Панская н.*

**НАЙПЕ́РШ**, *прысл.* (разм.). Перш за ўсё, у першую чаргу. *Дружба народаў засноўваецца н. на ўзаемнай павазе традыцый, гісторыі, культуры.*

**НАЙПЕ́РШЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Самы першы. *Найпершыя крокі дзіцяці.* **2.** Самы галоўны, самы важны; самы лепшы. *Н. гарманіст у вёсцы.*

**НАЙСЦІ́**, найду́, но́йдзеш, но́йдзе; найшо́ў, -шла́, -шло́; найдзі́; *зак.* **1.** *на каго-што.* Ідучы, наступіць на што-н. *Н. на купіну.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *на што.* Насунуўшыся, закрыць сабою. *Хмара найшла на сонца.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыйсці ў вялікай колькасці; пранікнуць у якое-н. месца. *Найшло народу на сход.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., на каго.* Апанаваць, ахапіць (аб пачуццях). *На яго найшла туга.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Настаць, з'явіцца раптам. *Бяда найшла неспадзявана.* ‖ *незак.* **нахо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць.

**НАКА́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Павучанне, настаўленне. *Бацькоўскі н.* **2.** Даручэнні выбаршчыкаў свайму дэпутату ў пісьмовай або вуснай форме для вырашэння ў пэўных інстанцыях. *Наказы выбаршчыкаў.*

**НАКАЗА́ЦЬ**, -кажу́, -ка́жаш, -ка́жа; -кажы́; *зак., каму* і *без дап.* **1.** Паведаміць каму-н. аб чым-н. праз каго-н. *Н. праз знаёмых.* **2.** Даць наказ, даручэнне. *Доктар наказаў сачыць за раненым.* **3.** Нагаварыць, сказаць многа чаго-н. (разм.). *Прабачце, наказаў вам немаведама колькі навін.* ‖ *незак.* **нака́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАКАЛАЦІ́ЦЬ**, -лачу́, -ло́ціш, -ло́ціць; -ло́чаны; *зак., чаго* (разм.). **1.** Натрэсці, наабіваць з дрэва нейкую колькасць пладоў. *Н. груш.* **2.** Намалаціць. *Н. жыта.* **3.** Нагатаваць якой-н. стравы, боўтаючы калатоўкай. *Н. заціркі.* ‖ *незак.* **накало́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАКАЛЕ́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Накладка, павязка, якая носіцца на калене.

**НАКАЛЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які надзяваецца, накладваецца на калена. *Накаленная павязка.*

**НАКАЛО́ЦЦА**, -калю́ся, -ко́лешся, -ко́лецца; -калі́ся; *зак.* **1.** Наткнуцца на што-н. вострае. *Н. на цвік.* **2.** Раскалоцца, расшчапіцца не да канца; надкалоцца. *Гарбуз накалоўся.* ‖ *незак.* **нако́лвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАКАЛО́ЦЬ**, -калю́, -ко́леш, -ко́ле; -калі́; -ко́латы; *зак.* **1.** *чаго.* Раскалоць пэўную колькасць чаго-н. *Н. дроў.* **2.** *каго.* Колючы, забіць у нейкай колькасці. *Н. свіней.* **3.** *што.* Пашкодзіць, параніць чым-н. вострым. *Н. нагу.* **4.** *што.* Пракалоць паверхню чаго-н. у многіх месцах. *Н. слівы для варэння.* **5.** *каго-што на што.* Насадзіць, нанізаць на што-н. вострае. *Н. матыля на шпільку.* **6.** *што.* Раскалоць, расшчапіць што-н. не да канца; надкалоць. *Н. палена.* ‖ *незак.* **нако́лваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **нако́лванне**, -я, *н.* (да 3—6 знач.) *і* **нако́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (да 4—6 знач.).

**НАКАЛУПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., чаго* (разм.). Калупаючы, аддзяліць, дастаць нейкую колькасць чаго-н. *Н. каранёў валяр'яну.* ‖ *незак.* **накалу́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАКАМА́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Сетка або спецыяльны мяшок для ахоvы ад камароў. *Марлевы н.*

**НАКАНАВА́НАСЦЬ**, -і, *ж.* (разм.). Тое, што наперад, загадзя абумоўлена абставінамі. *Н. лёсу.*

**НАКАНАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* наканаваць. **2.** Тое, што і *наканаванасць*; лёс. *Верыць у н.*

**НАКАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., каго-што каму* (разм.). Наперад, загадзя вызначыць, абумовіць што-н. ‖ *незак.* **накано́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **наканава́нне**, -я, *н.*

**НАКАНЕ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Невялікі каўпачок, звычайна падобны на конус, які насаджваецца на канец чаго-н. або прымацоўваецца да канца чаго-н. *Аловак з наканечнікам. Чахол шаблі з бліскучым наканечнікам.*

**НАКАНЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца, прымацаваны на канцы чаго-н.

**НАКАНІФО́ЛІЦЬ** *гл.* каніфоліць.

**НАКА́ПАЦЬ** *гл.* ка́паць.

**НАКАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* і *чаго.* **1.** Капаючы, нарабіць паглыбленняў. *Н. канаў.* **2.** Капа́ючы, здабыць нейкую колькасць чаго-н. *Н. мех бульбы.* ‖ *незак.* **нако́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАКАПІ́ЦЬ**, -каплю́, -ко́піш, -ко́піць; -ко́плены; *зак., што* і *чаго.* Паступова сабраць, павялічыць у якой-н. колькасці; назапасіць. *Н. грошай. Н. вопыт.* ‖ *незак.* **накапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **накапле́нне**, -я, *н.*

**НАКАПЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* накапіць. **2.** *мн.* -і, -яў. Тое, што накоплена; капітал, зберажэнні. *Дзяржаўныя накапленні.*

**НАКА́РКАЦЬ** *гл.* каркаць.

**НАКАРМІ́ЦЬ** *гл.* карміць.

**НАКАРЧАВА́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; -чу́й; -чава́ны; *зак., чаго.* Выкарчаваць, выкапаць з карэннем пэўную колькасць пнёў і пад. ‖ *незак.* **накарчо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАКАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які засох на чым-н. і ўтварыў корку. *Накарэлая гразь.* ‖ *наз.* **накарэ́ласць**, -і, *ж.*

**НАКАРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *зак.* (разм.). Засохшы, утварыць корку. *На ране накарэў струп.*

**НАКАСІ́ЦЦА**, -кашу́ся, -ко́сішся, -ко́сіцца; *зак.* (разм.). Напрацавацца, стаміцца на касьбе. *Н. да дзясятага поту.*

**НАКАСІ́ЦЬ**, -кашу́, -ко́сіш, -ко́сіць; -ко́шаны; *зак., чаго.* Косячы, нарыхтаваць якую-н. колькасць травы, сена. *Н. воз травы. Н. жывёле сена на зіму.*

**НАКАСЯ́К**, *прысл.* **1.** Коса, убок ад прамога кірунку. *Дарога ішла н.* **2.** Пра хуткую, нядбайную работу. *Так-сяк, накасяк, абы не па-людску* (прыказка).

**НАКА́Т**, -у, *М* -ка́це, *м.* **1.** *гл.* накатаць. **2.** Рад бярвён, жэрдак і пад., насланых наверх або пад нізам чаго-н.; насціл. *Бліндаж у тры накаты.* **3.** Слой фарбы на прыладзе для атрымання адбітку на якой-н. паверхні (на сцяне, паперы і інш.), а таксама ўзор на сценах. *Прыгожы н.* ‖ *прым.* **нака́тны**, -ая, -ае.

**НАКА́ТАМ**, *прысл.* **1.** Коцячы, перамяшчаць што-н. круглае. *Грузіць бочкі н.* **2.** Па інерцыі, сваім ходам. *Машына з узвышша рухалася н.*

**НАКАТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). Уволю пакатацца на чым-н. *Н. на матацыкле.*

**НАКАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; ната́ны; *зак., што* і *чаго.* **1.** Нанесці на паверхню чаго-н. малюнак, узор і пад. пры дапамозе спецыяльных прыстасаванняў. *Н. узор. Н. набор.* **2.** Хутка або наспех напісаць (разм.). *Н. пісьмо.* ‖ *незак.* **нака́тваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.); *наз.* **нака́тванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **нака́т**, -у, *М* -ка́це, *м.* (да 1 знач.) *і* **нака́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* (да 1 знач.).

**НАКА́ЎТ**, -а, *М* -ка́ўце, *м.* Стан баксёра ў час бою, калі ён пасля моцнага ўдару на працягу 10 секунд не можа падняцца і працягваць бой. *Паслаць праціўніка ў н.*

**НАКАЎТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго.* У боксе: прывесці (прыводзіць) праціўніка ў стан накаўта.

**НАКАЦІ́ЦЦА**, -качу́ся, -ко́цішся, -ко́ціцца; *зак.* **1.** Коцячыся, наткнуцца, ускаціцца на каго-, што-н. *Бочка накацілася на нагу.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Коцячыся, набегчы, пакрыць сабою. *Хваля накацілася на бераг.* **3.** *перан.* Нечакана ўзнікнуўшы, ахапіць. *Бяда раптоўна накацілася на вёску.* ‖ *незак.* **нако́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАКАЦІ́ЦЬ**, -качу́, -ко́ціш, -ко́ціць; -ко́чаны; *зак.* **1.** *чаго.* Прыкаціць нейкую колькасць чаго-н. *Н. бярвення.* **2.** *што.* Ускаціць што-н. на якую-н. паверхню. *Н. бочкі на платформу.* ‖ *незак.* **нако́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАКАЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *чаго.* Качаючы, зрабіць, прыгатаваць нейкую колькасць. *Н. галушак.* **2.** *чаго.* Выгладзіць пры дапамозе качалак у нейкай колькасці (пра бялізну і інш.). ‖ *незак.* **нака́чваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **нака́чванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**НАКВА́СІЦЬ**, -ква́шу, -ква́сіш, -ква́сіць; -ква́шаны, *зак., чаго.* Заквасіць пэўную колькасць чаго-н. *Н. бочку капусты.* ‖ *незак.* **наква́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАКДА́ЎН**, -а, *м.* Стан баксёра ў час бою, калі ён, будучы збітым з ног, можа на працягу 10 секунд падняцца і працягваць бой.

**НА́КІД**, -у *і* -а, *М* -дзе, *м.* **1.** -у, *гл.* накідаць. **2.** -а, *мн.* -ы, -аў. Папярэдні, у агульных рысах малюнак, чарцёж і пад. *Н. партрэта.*

**НАКІ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* і *чаго.* **1.** Кінуць у некалькі прыёмаў нейкую колькасць чаго-н. *Н. кучу камення.* **2.** Кідаючы, скласці ў якой-н. колькасці, напоўніць. *Н. кошык яблыкаў. Н. пяць стагоў сена.* **3.** Скласці ў агульных рысах; хутка намеціць, напісаць, намаляваць што-н. *Н. план выступлення.* ‖ *незак.* **накіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 і 2 знач.) *і* **накі́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **на́кід**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 3 знач.).

**НАКІ́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Верхняе адзенне без рукавоў. *Плашч-н.* **2.** Пакрывала на падушкі. *Вышываныя накідкі.*

**НАКІ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** *на каго (што).* Кінуўшыся, напасці на каго-н. *Ваўкі накінуліся на авечак.* **2.** *на каго (што).* Пачаць раптам папракаць, лаяць каго-н. *Н. на чалавека з лаянкай.* **3.** *на што.* Пачаць з азартам, прагнасцю што-н. рабіць. *Н. на ежу.* ‖ *незак.* **накіда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **накі́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАКІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -кі́нь; -нуты; *зак., што.* **1.** Кінуўшы наверх, прыкрыць, накрыць каго-, што-н. *Н. на плечы хустку.* **2.** Тое, што і *набавіць* (разм.). *Н. некалькі тысяч.* ‖ *незак.* **накіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **накі́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *прым.* **накідны́**, -а́я, -о́е.

**НА́КІП**, -у, *м.* **1.** Пена, якая ўтвараецца на паверхні вадкасці пры кіпенні, а таксама цвёрды асадак на сценках пасуды, у якой што-н. кіпяцяць. *Н. на супе. Н. у чайніку.* **2.** *перан.* Тое, што накіпела ў сэрцы, на душы; цяжкае пачуццё ад чаго-н. непрыемнага.

**НАКІПЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -пі́ць; *зак.* **1.** Сабрацца, асесці (пра накіп). **2.** *перан.* Сабрацца ў сэрцы, душы, перапоўніць сэрца, душу (пра гнеў, крыўду). *На душы накіпела* (безас.). ‖ *незак.* **накіпа́ць**, -а́е.

**НАКІРАВА́НАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Засяроджанасць, паглыбленасць думак, жаданняў, пачуццяў. **2.** Напрамак, выражаны ў працы, творы і пад. *Ідэйная н. твора.*

**НАКІРАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* накіраваць. **2.** Кірунак развіцця якога-н. дзеяння. *Даць н. справе.* **3.** *мн.* -і, -яў. Дакумент аб прызначэнні на работу, на лячэнне, абследаванне і пад. *Атрымаць н. на працу.*

**НАКІРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *зак.* Пайсці, паехаць куды-н., да каго-, чаго-н., рушыць у якім-н. кірунку. *Н. ў горад. Н. ў лес.* ‖ *незак.* **накіро́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАКІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Вызначыць, надаць кірунак руху каму-, чаму-н. *Н. машыны ў горад.* **2.** Сканцэнтраваць што-н. на кім-, чым-н., супраць чаго-н. *Н. усе сілы на выкананне задання. Н. увагу.* **3.** *каго-што.* Паслаць, адправіць, даць прызначэнне. *Н. хворага да ўрача.* **4.** *каго (што).* Даючы парады, навучыць чаму-н. добраму. *Н. на правільны шлях.* ‖ *незак.* **накіро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **накірава́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**НАКЛА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Дэталь, якая накладваецца на што-н. для ўмацавання. *Ствольная н.* **2.** Памылка, пралік (разм.). *Атрымалася н.*

**НАКЛАДНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які накладваецца, прымацоўваецца зверху чаго-н.; які пакрывае тонкім слоем што-н. *Накладныя кішэні. Накладное серабро.* **2.** *у знач. наз.* **накладна́я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* Дакумент, па якім здаецца або прымаецца груз, перадаецца тавар. *Прыняць прадукты па накладной.* ○ **Накладныя выдаткі** — дадатковыя выдаткі на гаспадарча-арганізацыйныя патрэбы.

**НАКЛА́СЦІ**, -ладу́, -ладзе́ш, -ладзе́; -ладзём, -ладзяце́, -ладу́ць; -ла́ў, -ла́ла; -ладзі́; -ла́дзены; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Кладучы, напоўніць чым-н. *Н. воз дроў.* **2.** Замацаваць што-н. на частцы паверхні. *Н. павязку.* **3.** *што на каго.* Падвергнуць чаму-н. каго-н.; прызначыць што-н. *Н. спагнанне. Н. штраф.* **4.** *чаго.* Развесці (пра агонь). *Н. агню.* **5.** *перан., што.* Пакінуць след, адбітак на кім-н. *Вайна наклала свой адбітак на жыццё вёскі.* **6.** Пабіць каго-н. (разм., груб.). ‖ *незак.* **наклада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **накла́дваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.).

**НАКЛЕ́ІЦЬ**, -ле́ю, -ле́іш, -ле́іць; -ле́ены; *зак.* **1.** *што.* Прымацаваць што-н. пры дапамозе клею. *Н. афішу.* **2.** *чаго.* Склейваючы, зрабіць нейкую колькасць чаго-н. *Н. канвертаў.* ‖ *незак.* **накле́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **накле́йванне**, -я, *н.* *і* **накле́йка**, -і, *ДМ* -клейцы, *ж.*

**НАКЛЕ́ЙКА**, -і, *ДМ* -клейцы, *ж.* **1.** *гл.* наклеіць. **2.** *мн.* -і, -клеек. Этыкетка, ярлык і пад., якія наклеены на што-н. *Н. на чамадане.*

**НАКЛЁПВАННЕ** *гл.* накляпаць[1].

**НАКЛЁПВАЦЬ** *гл.* накляпаць[1].

**НАКЛЁПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* **1.** *гл.* накляпаць[1]. **2.** Тое, што наклепана на што-н. *Металічная н.*

**НАКЛІ́КАЦЬ**, -клі́чу, -клі́чаш, -клі́ча; -клі́ч; -клі́каны; *зак.* **1.** *каго (чаго).* Наззываць, запрасіць у вялікай колькасці. *Н. гасцей.* **2.** *перан., што* і *чаго.* Выклікаць якім-н. учынкам, словам і пад. што-н. непрыемнае, непажаданае; напрарочыць. *Н. бяду ў хату.* ‖ *незак.* **накліка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАКЛЮ́НУТЫ**, -ая, -ае. **1.** Прабіты дзюбай (пра шкарлупіну яек, з якіх вылупліваюцца птушаняты). *Наклюнутае яйцо.* **2.** Які пачаў прарастаць, распускацца. *Наклюнутае зерне.*

**НАКЛЮ́НУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* **1.** Стаць прабітым дзюбай (пра шкарлупіну яек, з якіх вылупліваюцца птушаняты). **2.** Пра зерне, пупышкі: пачаць прарастаць, распускацца. **3.** *перан.* Выпадкова трапіцца, абазначыцца, намеціцца (разм.). *Наклюнулася добрая работа.* ‖ *незак.* **наклёўвацца**, -аецца.

**НАКЛЯПА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* (спец.). **1.** *што.* Прыкляпаць што-н. да чаго-н. **2.** *чаго.* Кляпаннем зрабіць пэўную колькасць чаго-н. **3.** *што.* Ударамі малатка навастрыць (касу). *Н. касу.* ‖ *незак.* **наклёпваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **наклёпка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* *і* **наклёпванне**, -я, *н.*

**НАКЛЯПА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., на каго (што)* (разм.). Нагаварыць на каго-н., узвесці паклёп. *Дарэмна накляпалі на чалавека.*

**НАКЛЯ́ЎЗНІЧАЦЬ** *гл.* кляўзнічаць.

**НАКО́ЛВАННЕ** *гл.* накалоць.

**НАКО́ЛВАЦЦА** *гл.* накалоцца.

**НАКО́ЛВАЦЬ** *гл.* накалоць.

**НАКО́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* **1.** *гл.* накалоць. **2.** *мн.* -і, -лак. Аздоба з матэрыі або карункаў, якую наколваюць на жаночую прычоску. **3.** *мн.* -і, -лак. Тое, што і *татуіроўка* (разм.). *Н. на грудзях.*

**НАКО́ЛЬКІ**, *прысл.* **1.** У якой ступені, меры. *Буду працаваць, н. хопіць здароўя.* **2.** Ужыв. як злучальнае слова: а) у даданых дапаўняльных сказах. *Усё залежыць ад таго, н. пісьменнік можа выкарыстаць свой творчы патэнцыял.* б) у даданых дзейнікавых сказах. *Дзіўна, н. дажджлівае надвор'е адпавядала яго настрою.*

**НАКО́НТ**, *прыназ. з Р.* Адносна чаго-н. *Гаворка вялася н. работы.*

**НАКО́ПВАЦЬ** *гл.* накапа́ць.

**НАКО́СНЫ**, -ая, -ае. Які ўтвараецца на касцях. *Накосная пухліна.*

**НАКО́ЧВАЦЦА** *гл.* накаціцца.

**НАКО́ЧВАЦЬ** *гл.* накаціць.

**НАКРА́ПВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -вае; *незак.* Падаць кроплямі (пра дождж). *З самага ранку накрапвае дождж.* ‖ *наз.* **накра́пванне**, -я, *н.*

**НАКРО́ІЦЬ**, -ро́ю, -ро́іш, -ро́іць; -ро́ены; *зак., чаго.* **1.** Скроіць, выкраіць нейкую колькасць чаго-н. *Н. сарочак.* **2.** Нарэзаць лустамі. *Н. хлеба.* ‖ *незак.* **накро́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАКРУХМА́ЛІЦЬ** *гл.* крухмаліць.

**НАКРУЦІ́ЦЦА**, -ручу́ся, -ру́цішся, -ру́ціцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Навіцца, наматацца на што-н. *Ланцуг накруціўся на барабан.* **2.** *перан.* Многа, доўга пахадзіць, стаміцца ад клопатаў (разм.). *Н. за раніцу.*

**НАКРУЦІ́ЦЬ**, -ручу́, -ру́ціш, -ру́ціць; -ру́чаны; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Навіць, наматаць на што-н. *Н. нітак на шпульку.* **2.** *што.* Навінціць на што-н. *Н. гайку на болт.* **3.** *чаго.* Насвідраваць адтулін, дзірак. **4.** *перан., што* і *чаго.* Вельмі ўскладніць што-н., нарабіць чаго-н. мудрагелістага (разм.). *Н. многа лішняга ў гневе.* **5.** *што.* Прывесці ў дзеянне спружыну якога-н. механізма (разм.). *Н. будзільнік.* ◊ **Накруціць вушы** *каму* (разм.) — пакараць каго-н., пацягаўшы за вушы. **Накруціць хвост** *каму* (разм.) — даць наганяй, прабраць каго-н. за што-н. ‖ *незак.* **накру́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НА́КРЫЖ**, *прысл.* Крыжападобна, як крыж. *Скласці рукі н.*

**НА́КРЫЎКА**, -і, *ДМ* -рыўцы, *мн.* -і, -рывак, *ж.* Тое, чым накрываюць што-н. зверху. *Н. каструлі.*

**НАКРЫ́ЦЦА**, -ры́юся, -ры́ешся, -ры́ецца; *зак.* Пакрыцца, прыкрыцца чым-н. зверху. *Н. шынялём.* ◊ **Хвастом накрыцца** (разм., неадабр.) — знікнуць, учыніўшы што-н. ‖ *незак.* **накрыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**НАКРЫ́ЦЬ**, -ры́ю, -ры́еш, -ры́е; -ры́ты; *зак.* **1.** *гл.* крыць. **2.** *каго-што.* Пакрыць, закрыць каго-, што-н. зверху. *Н. машыну брызентам.* **3.** Папасці ў цэль (пры абстрэле, бамбардзіроўцы); знішчыць. *Н. працаўніка артылерыйскім агнём.* **4.** *перан.* Ахінуць; ахутаць (пра цемру, туман і пад.). *Ноч накрыла ўсё навокал.* **5.** Зрабіць дах, страху. *Н. хату шыферам.* **6.** *каго (што).* Злавіць, захапіць знянацку на месцы злачынства (разм.). *Н. бандытаў.* ◊ **Накрыць (на) стол** — падрыхтаваць стол для яды, паставіўшы ўсё неабходнае. ‖ *незак.* **накрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **накрыва́нне**, -я, *н.* (да 2 і 4 знач.).

**НАКРЫЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́ *зак., на каго* і *без дап.* Насварыцца на каго-н. *Н. на свавольніка.*

**НАКРЫШЫ́ЦЬ** *гл.* крышыць.

**НАКРЭ́МЗАЦЬ** *гл.* крэмзаць.

**НАКРЭ́СЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* **1.** *чаго.* Крэслячы, правесці шмат ліній; закрэсліць у многіх месцах. **2.** *што.* Зрабіць накід (плана, схемы і пад.). *Н. чарцёж.* **3.** *што* і *чаго.* Напісаць (разм.). *Н. сказ у сшытку.* **4.** *перан., што.* Наметыць, вызначыць на будучае; прадказаць. *Н. шлях развіцця будучага прадпрыемства.*

**НАКУКАВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -куе; *зак., што* і *чаго* (разм.). У народных павер'ях: прадказаць колькасць гадоў жыцця (пра кукаванне зязюлі).

**НАКУ́ЛЬГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Крыху кульгаць. *Н. на адну нагу.* ‖ *наз.* **наку́льгванне**, -я, *н.*

**НАКУПІ́ЦЬ**, -куплю́, -ку́піш, -ку́піць; -ку́плены *і* **НАКУПЛЯ́ЦЬ**, -пля́ю, -пля́еш, -пля́е; -купля́ны; *зак., чаго.* Купіць вялікую колькасць чаго-н. *Накупіла рознай драбязы. Накупляў цацак дзецям.*

**НАКУРО́ДЫМЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -міць; *зак.* Вылучыць з сябе шмат курадыму, сажы; накурэць. *Лямпа накуродымела.*

**НАКУРО́ДЫМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; *зак.* Нарабіць, напусціць курадыму. *Галавешка накуродыміла.*

**НАКУРЫ́ЦЬ**, -куру́, -ку́рыш, -ку́рыць; -ку́раны; *зак.* Курачы, напоўніць памяшканне табачным дымам. ‖ *незак.* **наку́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАКУРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *зак.* Напусціць дыму; накуродымець. *Галавешкі накурэлі поўную хату дыму.*

**НАКУСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каго-што.* Пра насякомых: пакусаць, нарабіць укусаў у многіх месцах. *Камары накусалі рукі.* **2.** *чаго.* Адкусваючы шчыпцамі, нарабіць кавалкаў (разм.). *Н. свінцу.* ‖ *незак.* **наку́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАКУСІ́ЦЬ**, -кушу́, -ку́сіш, -ку́сіць; -ку́саны; *зак., што.* Пракусіць злёгку, зверху, не да канца. *Н. яблык.* ‖ *незак.* **на-**

**ку́сваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **наку́сванне**, -я, *н.*

**НАКУХА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак., чаго* і *без дап.* (разм.). Наварыць чаго-н., прыгатаваць у нейкай колькасці для яды. *Чаго ты там накухарыла?*

**НАКЦЮ́РН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі музычны твор лірычнага характару.

**НАКШТА́ЛТ**, *прыназ. з Р.* Спалучэнне з прыназоўнікам «накшталт» выражае параўнальныя адносіны: указвае на прадмет, з'яву, прымету, да якіх падобны якія-н. прадметы, з'явы. *Нешта н. дрэва.*

**НАЛА́ДЗІЦЦА**, -ла́джуся, -ла́дзішся, -ла́дзіцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пайсці на лад; прыняць належны кірунак; устанавіцца. *Работа наладзілася. Надвор'е наладзілася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць прыгодным (для работы, карыстання і пад.). *Станок наладзіўся.* **3.** Сабрацца, прыладзіцца рабіць што-н. *Н. слухаць радыё.* || *незак.* **нала́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАЛА́ДЗІЦЬ**, -ла́джу, -ла́дзіш, -ла́дзіць; -ла́джаны; *зак., што.* **1.** Адрамантаваць, направіць што-н. папсаванае, паламанае. *Н. трактар.* **2.** Зрабіць, стварыць. *Н. друкарню.* **3.** Арганізаваць што-н., ажыццявіць якое-н. мерапрыемства. *Н. сустрэчу з выпускнікамі.* **4.** Прывесці ў парадак, уладкаваць. *Н. гаспадарку.* || *незак.* **нала́джваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **нала́дка**, -і, *ДМ* -дцы (да 1 знач.; спец.) *і* **нала́джванне**, -я, *н.* || *прым.* **нала́дачны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**НАЛА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па наладцы машын, станкоў, механізмаў. *Працаваць наладчыкам.* || *ж.* **нала́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**НАЛАЖЫ́ЦЦА**, -лажу́ся, -ло́жышся, -ло́жыцца; *зак.* (разм.). Налаўчыцца рабіць што-н. *Не налажылася яна яшчэ да такой работы.*

**НАЛАЖЫ́ЦЬ**[1], -лажу́, -ло́жыш, -ло́жыць; -ло́жаны; *зак.* **1.** *што.* Палажыць зверху, паверх чаго-н; замацаваць што-н. *Н. зверху пліту. Н. павязку. Н. гіпс.* **2.** *што.* Зрабіць якую-н. памету, запіс, знак. *Н. рэзалюцыю.* **3.** *што* і *чаго.* Кладучы, напоўніць чым-н. *Н. воз сена.* **4.** *што.* Падвергнуць чаму-н., што абазначана назоўнікам; прызначыць што-н. *Н. штраф. Н. спагнанне.* ◊ **Налажыць галавой** (разм.) — прапасці, загінуць. **Налажыць лапу (руку)** *на што* (разм.) — захапіць што-н., падпарадкаваць сабе. || *незак.* **накла́дваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **налажэ́нне**, -я, *н.* (да 2 і 4 знач.).

**НАЛАЖЫ́ЦЬ**[2], -лажу́, -ло́жыш, -ло́жыць; -ло́жаны; *зак., каго* (разм.). Скіраваць каго-н. на што-н., навучыць чаму-н. *Н. хлопца на добрае.*

**НАЛА́ЗІЦЬ** *гл.* налезці.

**НАЛАМА́ЦЬ**, -ламлю́, -ло́міш, -ло́міць; -лама́ў, -ма́ла; -ламі́; -лама́ны; *зак.* **1.** *чаго.* Зламаць нейкую колькасць чаго-н.; паламаць. *Н. галля. Н. цацак.* **2.** *што.* Зламаць не да канца, надламаць. *Н. галінку.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., каго.* Схіліць да чаго-н., угаварыць заняцца чым-н. (разм.). *Н. унука на сталярства.* ◊ **Наламаць руку** *на чым* (разм.) — набыць вопыт у якой-н. справе. || *незак.* **нало́мліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **нало́мваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.).

**НАЛАПАТА́ЦЬ**, -лапачу́, -лапо́чаш, -лапо́ча; -лапачы́; *зак., чаго* (разм.). Нагаварыць абы-чаго.

**НАЛА́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Залатаць што-н.

**НАЛАТАШЫ́ЦЬ**, -ташу́, -то́шыш, -то́шыць; -то́шаны; *зак., чаго* (разм.). Нарваць без разбору, псуючы і спусташаючы. *Н. агуркоў. Н. гароху.* || *незак.* **налато́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЛА́ЦІЦЬ** *гл.* лаціць.

**НАЛГА́ЦЬ** *гл.* ілгаць.

**НАЛЕ́ВА**, *прысл.* **1.** У левы бок, на левым баку. *Звярнуць н. Паглядзець н.* **2.** *перан.* Не па прамым прызначэнні, незаконна (разм.). *Прадаць тавар н.*

**НАЛЕ́ГЧЫ**, -ля́гу, -ля́жаш, -ля́жа; налёг, -ляглá *і* -ле́гла, -ляглó *і* -ле́гла; наля́ж; *зак.* **1.** *на каго-што.* Наваліцца на каго-, што-н., націснуць сваім цяжарам. *Н. плячом на дзверы.* **2.** *перан., на што.* З сілай пачаць дзейнічаць якой-н. прыладай. *Н. на вёслы.* **3.** *перан., на што.* Пачаць энергічна рабіць што-н., займацца чым-н. (разм.). *Н. на вучобу. Н. на работу.* || *незак.* **наляга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НА́ЛЕДЗЬ**, -і, *ж.* Ледзяная корка, якая ўтвараецца ў выніку замярзання вады, што выйшла на паверхню, а таксама слой лёду рознай таўшчыні, які намярзае на чым-н. *Н. на акне.*

**НАЛЕ́ЖАЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; *незак.* **1.** *каму.* Быць, з'яўляцца ўласнасцю каго-, чаго-н., знаходзіцца ў распараджэнні каго-н. *Нетры зямлі належаць дзяржаве. Будучае належыць моладзі.* **2.** *да каго-чаго.* Адносіцца да якой-н. групы, уваходзіць у склад чаго-н. *Н. да механізатараў.* **3.** *каму-чаму.* Быць уласцівым каму-, чаму-н.; заключацца ў кім-, чым-н. *Важная роля належыць культуры.* **4.** *безас., каму.* Падлягаць выплаце, выдачы за што-н. *Належыць заплаціць за нумар у гасцініцы.* **5.** *безас., каму* і *без дап.* Быць устаноўленым, вызначаным. *Паставым належыць мець пісталеты.* **6.** *безас., з інф., каму.* Быць неабходным. *Перш за ўсё належала сабраць насенне. Дэпутату належала яшчэ раз сустрэцца з выбаршчыкамі.* ◊ **Як (і) належыць** (разм.) — як патрэбна, як мае быць.

**НАЛЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Такі, які павінен быць; неабходны, патрэбны. *Н. парадак. Прыняць належныя меры.*

**НАЛЕ́ЗЦІ**, -ле́зу, -ле́зеш, -ле́зе; нале́з; -зла; -ле́зь; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Улезці куды-н. у вялікай колькасці. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каго-што.* Пра адзежу, абутак: надзецца. *Боты не налезлі на ногі.* **3.** *на каго-што* і *без дап.* Насунуцца, наваліцца на каго-, што-н. *Льдзіна налезла на льдзіну.* || *незак.* **нала́зіць**, -ла́жу, -ла́зіш, -ла́зіць.

**НАЛЕ́ТА**, *прысл.* (разм.). Будучым летам, у будучым годзе. *Не паступіў у інстытут сёлета, паступіш н.*

**НАЛЁТ**, -у, *М* -лёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* наляцець. **2.** Раптоўны ваенны ўзброены напад на каго-, што-н. *Паветраны н. Агнявы н.* **3.** Напад з мэтай грабяжу. *Бандыцкі н.* **4.** Тонкі слой чаго-н. на паверхні. *Н. пылу. Н. іржы.* **5.** *перан., чаго.* Пра што-н., звязанае з унутраным станам, пачуццямі. *Артыкул з налётам гумару.* **6.** Колькасць налятанага часу або налятанай адлегласці. *На яго рахунку 500 тысяч кіламетраў налёту.* ◊ **З налёту** (разм.) — не спыняючы руху, на поўным ходзе.

**НАЛЁТАМ**, *прысл.* (разм.). Раптоўна; знянацку. *Захапіць штаб праціўніка н.*

**НАЛЁТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Грабежнік, той, хто займаецца налётамі (у 3 знач.). || *ж.* **налётчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**НАЛІВА́ЦЦА** *гл.* наліцца.

**НАЛІВА́ЦЬ** *гл.* наліць.

**НАЛІЗА́ЦЦА**, -ліжу́ся, -лі́жашся, -лі́жацца; -ліжы́ся; *зак.* **1.** *чаго.* Уволю палізаць (разм.). *Н. мёду.* **2.** *чаго* і *без дап.* Напіцца дап'яна (разм., груб.). *Во налізаўся, на нагах не можа стаяць.* || *незак.* **налі́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАЛІ́К**, -у, *м.* Грашовае спагнанне за няправільныя выдаткі; налічэнне. *Грашовы н.* || *прым.* **налíко́вы**, -ая, -ае.

**НАЛІНЕ́ІЦЬ** *гл.* лінеіць.

**НАЛІ́ПНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; налі́п, -пла; *зак.* Прыліпнуць да паверхні ў якой-н. колькасці. *Гразь наліпла на боты.* || *незак.* **наліпа́ць**, -а́е.

**НАЛІ́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вельмі тонкі блін з пшанічнай мукі. *Напячы налíснікаў.*

**НАЛІ́Ў**, -лі́ву, *м.* **1.** *гл.* наліць. *Н. бензіну ў цыстэрны.* **2.** Ступень напоўненасці чаго-н. вадкасцю. *Бутэлька з няпоўным налівам.* **3.** Набуханне сокамі пладоў, зерня. *Н. зерня.* **4.** Пухліна на назе ў каня (спец.). ○ **Белы наліў** — гатунак ранніх яблыкаў.

**НАЛІ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ліўцы, *мн.* -і, -лівак, *ж.* Род віна — салодкая настойка на фруктах, ягадах. *Вішнёвая н.* || *прым.* **налі́вачны**, -ая, -ае.

**НАЛІЎНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які прыстасаваны для перавозкі вадкіх грузаў без тары. *Наліўное судна.* **2.** Які прыводзіцца ў рух вадою, што падае зверху (спец.). *Наліўное вадзяное кола.* **3.** Поўны сокаў, спелы (пра плады). *Наліўныя яблыкі.*

**НАЛІ́ХА**, *прысл.* (разм.). **1.** Для якой патрэбы, нашто. *Н. ён мне патрэбен.* **2.** (у спалучэнні са словам «як»). На няшчасце; назло. *Як н. пайшоў дождж.*

**НАЛІ́ЦЦА**, -льюся *і* -лію́ся, -льешся *і* -лі́ешся, -лье́цца *і* -ліе́цца; налі́ўся, -ліла́ся, -ло́ся; налі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Нацячы, пранікнуць куды-н. *Налілася вада ў бочку.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Напоўніцца чым-н. вадкім. *Вядро налілося*

*роўна з берагамі.* **3.** *перан.* Змяніць колер, афарбоўку. *Шчокі наліліся румянцам.* **4.** Стаць сакавітым, спелым. *Яблыкі наліліся сокам.* **5.** *перан.* Напоўніцца якой-н. якасцю (сілай, здароўем, злосцю і пад.). *Мускулы наліліся.* ◊ **Наліцца кроўю** (разм.) — пачырванець ад прыліву крыві. ‖ *незак.* **наліва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**НАЛІ́ЦЬ**, -лью́, -лье́ш, -лье́; -льём, -льяце́, -лью́ць *і* -лію́, -ліе́ш, -ліе́; -ліём, -ліяце́, -лію́ць; налі́ў, -ліла́, -ліло́; налі́; -лі́ты; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Уліць або, уліваючы, напоўніць што-н. *Н. кубак кавы.* **2.** *без дап.* Тое, што і *наліцца* (у 4 знач.; разм.). *Жыта ўжо наліло.* **3.** *перан.; што.* Напоўніць якой-н. якасцю, якім-н. пачуццём, адчуваннем. **4.** *чаго.* Разліць па паверхні. *Н. на стол малака.* **5.** *чаго.* Вырабіць, падрыхтаваць ліццём нейкую колькасць чаго-н. *Н. свінцовых куль.* ‖ *незак.* **наліва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **налі́ў**, -лі́ву, *м.* (да 1, 2 і 4 знач.).

**НАЛІ́ЧВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* Быць, мецца ў наяўнасці, у пэўнай колькасці. *У класе налічваецца 20 чалавек.*

**НАЛІ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* налічыць. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Утрымліваць, змяшчаць у сабе нейкую колькасць каго-, чаго-н. *Атрад налічваў трыста чалавек.*

**НАЛІ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Накладная ліштва на дзвярным або аконным праёме. *Без налічнікаў вокны сляпыя.*

**НАЛІЧЫ́ЦЬ**, -лічу́, -лі́чыш, -лі́чыць; -лі́чаны; *зак., што.* **1.** Лічачы, устанавіць колькасць каго-, чаго-н. *Н. дзесяць памылак.* **2.** Лічачы, дабавіць лішнюю суму; пералічыць. *Н. лішніх сто тысяч.* **3.** Вызначыць дабаўку да якой-н. сумы; прылічыць звыш чаго-н. *Н. 20 тысяч пені. Н. працэнты на ўклад.* **4.** Залічыць на чый-н. рахунак які-н. від аплаты. *Н. заработную плату.* ‖ *незак.* **налічва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **налі́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **налічэ́нне**, -я, *н.* (да 3 і 4 знач.).

**НАЛІЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* налічыць. **2.** Налічаная сума. *Н. за водпуск.*

**НАЛО́БНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Рамень у конскай вуздэчцы, які праходзіць упоперак ілба. **2.** Павязка, якая завязваецца на галаву для падтрымкі валасоў у час работы.

**НАЛО́БНЫ**, -ая, -ае. Які надзяваецца на лоб. *Налобная павязка.*

**НАЛО́МВАЦЬ** *гл.* наламаць.

**НАЛО́МЛІВАЦЬ** *гл.* наламаць.

**НАЛУЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., чаго.* **1.** Ачысціць ад шалупін нейкую колькасць чаго-н. *Н. арэхаў.* **2.** Насмеціць шкарлупіннем. ‖ *незак.* **налу́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЛУПІ́ЦЬ**[1], -луплю́, -лу́піш, -лу́піць; -лу́плены; *зак., чаго.* **1.** Надраць пэўную колькасць чаго-н. *Н. кары.* **2.** Нарваць вялікую колькасць чаго-н. (разм.). *Н. морквы.*

**НАЛУПІ́ЦЬ**[2], -лупллю́, -лу́піш, -лу́піць; -лу́плены; *зак., каго* (разм.). Набіць каго-н.; налупцаваць.

**НАЛУПЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак., каго* (разм.). Набіць дзягай, плёткай, розгай; выхвастаць.

**НАЛУ́ШЧЫЦЬ**, -лу́шчу, -лу́шчыш, -лу́шчыць; -лу́шчаны; *зак., чаго.* **1.** Ачысціць ад шалупін, якой-н. абалонкі нейкую колькасць чаго-н. *Н. гароху.* **2.** і *без дап.* Насмеціць шалушэннем. *Н. на падлогу.* ‖ *незак.* **налу́шчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЛЫГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Злучыць, звязаць пры дапамозе вяроўкі, рэменя і пад. *Н. валоў.* **2.** *што* і *чаго.* Тое, што і *нанізаць* (разм.). *Н. нізку баравікоў.* **3.** *каго.* Налавіць (пры дапамозе пятлі). *Н. арканам дзікіх коней.* ‖ *незак.* **налы́гваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЛЫГА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Рэмень, шнур, на якім водзяць жывёлу, паляўнічых сабак.

**НАЛЮБАВА́ЦЦА**, -бу́юся, -бу́ешся, -бу́ецца; -бу́йся; *зак.* Уволю палюбавацца. *Не магу н. азёрным краявідам.*

**НАЛЯГА́ЦЬ** *гл.* налегчы.

**НАЛЯ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Зрабіць што-н. наспех, няўмела, абы-як. *Н. карціну.* **2.** *чаго, чым* і *без дап.* Напэцкаць, нарабіць плям на чым-н. *Н. на абрус.*

**НАЛЯПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ле́піцца; *зак.* Прыляпіцца ў нейкай колькасці. *Наляпілася снегу на боты.*

**НАЛЯПІ́ЦЬ**, -ляплю́, -ле́піш, -ле́піць; -ле́плены; *зак.* **1.** *гл.* ляпіць. **2.** *чаго.* Лепячы, нарабіць, прыгатаваць. *Н. гаршкоў.*

**НАЛЯТА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак.* **1.** *гл.* наляцець. **2.** *заг.* **налята́й(це).** Ужыв. як запрашэнне хутчэй што-н. браць, купляць (разм.). *Налятайце, дзеці, на пачастункі!*

**НАЛЯТА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* Лётаючы, пакрыць якую-н. адлегласць, прабыць нейкі час у паветры. *Н. тысячу кіламетраў. Н. тры тысячы гадзін.*

**НАЛЯЦЕ́ЦЬ**, -лячу́, -ляці́ш, -ляці́ць; -ляці́м, -лецце́, -ляця́ць; -ляці́; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыляцець у вялікай колькасці. *Наляцелі пчолы на мёд.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Падаючы, асесці ў якой-н. колькасці. *Наляцела* (безас.) *тапалінага пуху ў хату.* **3.** *на каго-што.* На хаду, з разбегу наткнуцца, наскочыць (разм.). *Н. на слуп.* **4.** *на каго-што.* Напасці на каго-н. з лёту. *Ястраб наляцеў на куранят.* **5.** *на каго-што* і *без дап.* Зрабіць напад, атакаваць. *Карнікі наляцелі на вёску.* **6.** *перан., на каго.* Накінуцца на каго-н. з лаянкай, пагрозамі (разм.). *Свякроў наляцела з пагрозамі.* **7.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Знянацку пачацца (пра вецер, дождж і пад.). *Наляцела навальніца з градам.* ‖ *незак.* **налята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **налёт**, -у, *М* -лёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (да 1, 3—5 знач.).

**НАМАГА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* намагацца. **2.** Фізічнае, разумовае або душэўнае напружанне, накіраванае на што-н. *Прыкласці ўсе намаганні.*

**НАМАГА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *з інф.* Старацца што-н. зрабіць. *Н. скончыць работу ў тэрмін.* **2.** Настойваць на чым-н. *Н. здзейсніць задуму.* ‖ *наз.* **намага́нне**, -я, *н.*

**НАМАГІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца на магіле. *Н. помнік.*

**НАМАГНІ́ЦІЦЬ**, -ні́чу, -ні́ціш, -ні́ціць; -ні́чаны; *зак., што.* Надаць якому-н. целу якасці магніта. *Н. сталёвы стрыжань.* ‖ *незак.* **намагні́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАМА́З**, -у, *м.* Мусульманскі рэлігійны абрад, пры якім малітва суправаджаецца мыццём рук і рытуальнымі рухамі. *Вячэрні н.*

**НАМА́ЗАЦЦА** *гл.* мазацца.

**НАМА́ЗАЦЬ** *гл.* мазаць[1].

**НАМАЗО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Нацерці да мазалёў. *Н. рукі.* ‖ *незак.* **намазо́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАМАКА́ЦЬ** *гл.* намокнуць.

**НАМАЛАЦІ́ЦЦА**, -лачу́ся, -ло́цішся, -ло́ціцца; *зак.* (разм.). Напрацавацца, малоцячы. *За раніцу намалаціўся ўдосталь.*

**НАМАЛАЦІ́ЦЬ**, -лачу́, -ло́ціш, -ло́ціць; -ло́чаны; *зак., чаго.* **1.** Нарыхтаваць малацьбой. *Н. тону гароху.* **2.** *перан.* Пабіць, разбіць нейкую колькасць чаго-н. (разм.). *Колькі талерак намалаціў!* **3.** *перан.* Хутка нагаварыць чаго-н. (разм.). ‖ *незак.* **намало́чваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **намало́т**, -у, *М* -ло́це, *мн.* -ы, -аў, *м.*

**НАМАЛО́ЦЬ**, -мялю́, -ме́леш, -ме́ле; -мялі́; -мо́латы; *зак.* **1.** *чаго.* Размалоць нейкую колькасць чаго-н. *Н. мукі.* **2.** *перан.; чаго* і *без дап.* (разм.). Нагаварыць многа лішняга, пустога. *Н. лухты.*

**НАМАЛЯВА́ЦЬ** *гл.* маляваць.

**НАМАНІ́ЦЬ** *гл.* маніць.

**НАМАРЫНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., чаго.* Марынуючы, прыгатаваць нейкую колькасць чаго-н. *Н. грыбоў.* ‖ *незак.* **намарыно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАМА́СЛІЦЬ** *гл.* масліць.

**НАМАСЦІ́ЦЬ** *гл.* масціць.

**НАМАТА́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Навіцца, накруціцца на што-н. *Ніткі наматаліся на шпульку.*

**НАМАТА́ЦЦА**[2], -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). Стаміцца ад беганіны, клопатаў, турбот; заматацца. *Наматаўся за дзень.*

**НАМАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* і *чаго.* **1.** *гл.* матаць[1]. **2.** Матаючы, нарыхтаваць у нейкай колькасці. *Н. пяць клубкоў нітак.* ‖ *незак.* **намо́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАМАХЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; *зак., чаго* (разм.). Набыць махлярствам нейкую колькасць чаго-н.

**НАМА́ЦАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Абмацваючы, адчуць наяўнасць чаго-н., знайсці, адшукаць. *Н. кашалёк у кішэні.* **2.** *перан.* Знайсці, адшу-

кацъ у выніку пошукаў; выявіць. *Н. слабыя месцы ў рабоце.* || *незак.* **намáцваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАМАЧЫЦЬ**, -мачý, -мóчыш, -мóчыць; -мóчаны; *зак.* **1.** *гл.* мачыць. **2.** *што* і *чаго.* Нарыхтаваць мачэннем. *Н. яблыкаў.*

**НАМЕЖАВÁЦЬ**, -мяжýю, -мяжýеш, -мяжýе; -мяжýй; -межавáны; *зак., чаго.* Устанавіць граніцы, межы чаго-н. || *незак.* **намяжóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАМЕНКЛАТÝРА**, -ы, *ж.* **1.** Пералік або сукупнасць назваў, тэрмінаў, што ўжываюцца ў якой-н. спецыяльнасці. *Геаграфічная н. Н. лекавых сродкаў.* **2.** *зб.* Наменклатурныя работнікі, а таксама спісы адпаведных пасад (разм.). || *прым.* **наменклатýрны**, -ая, -ае. *Н. работнік. Наменклатурныя кадры.*

**НАМÉР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Замысел што-н. зрабіць. *Добрыя намеры.* ◊ **З намерам** — з пэўнай мэтай, знарок.

**НАМÉРАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* **1.** Адмераць у якой-н. колькасці. *Н. зямлі.* **2.** Мераючы, вызначыць колькасць чаго-н. *Н. пяць метраў тканіны.* || *незак.* **намéрваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **намярáць**, -áю, -áеш, -áе.

**НАМÉРЗНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; намёрзся, -мéрзлася; -ніся; *зак.* (разм.). Пабыўшы доўга на холадзе, вельмі змерзнуць. *Н. ў дарозе.*

**НАМÉРЗНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -зне; намёрз, -мéрзла; *зак.* Замярзаючы, утварыцца, нарасці на паверхні чаго-н. (пра лёд і пад.). *Каля калодзежа намерзла* (безас.). || *незак.* **намярзáць**, -áе.

**НАМÉРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* **1.** *з інф.* Займець намер што-н. зрабіць. *Н. паехаць на экскурсію.* **2.** Нацэліцца, замахнуцца. *Н. сякерай для ўдару.* || *незак.* **намéрвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАМÉСНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Асоба, якая замяняе каго-н. *Знайсці сабе намесніка.* **2.** Афіцыйная назва асобы, якая замяшчае кіраўніка. *Н. дырэктара.* || *ж.* **намéсніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. || *прым.* **намéсніцкі**, -ая, -ае.

**НАМÉСЦІ**, -мятý, -мяцéш, -мяцé; -мяцём, -мецяцé, -мятýць; намёў, -млá, -мялó; намяцí; -мéцены; *зак., чаго.* **1.** Падмятаючы, сабраць у нейкай колькасці. *Н. кучу смецця.* **2.** Нанесці, надзьмуць ветрам (пра пыл, снег і пад.). *Н. гурбы снегу.* || *незак.* **намятáць**, -áю, -áеш, -áе.

**НАМÉТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Тое, што папярэдне намечана, папярэдні план. *Падрыхтаваць наметкі.*

**НАМÉЦІЦЬ**[1], -мéчу, -мéціш, -мéціць; -мéчаны; *зак.* **1.** *гл.* меціць[1]. **2.** *што.* Лёгкімі штрыхамі вызначыць асноўныя контуры чаго-н. *Н. пярэдні край карціны.* **3.** Папярэдне вызначыць каго-, што-н. *Н. кандыдатуру на вакантную пасаду. Н. дзень для паездкі.* **4.** *што.* Задумаць, запланаваць зрабіць што-н. *Н. на сераду сход працоўнага калектыву.* || *незак.* **намячáць**, -áю, -áеш, -áе.

**НАМÉЦІЦЬ**[2] *гл.* меціць[2].

**НÁМЕЦЬ**, -і, *ж.* Тое, што намецена ветрам (гурбы снегу, пяску і пад.). *Снежная н.*

**НАМÉШВАЦЬ** *гл.* намяшаць.

**НАМЁК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Слова або жэст, у якіх адкрыта не выказваецца думка, але мяркуецца, што пра яе здагадаюцца. *Гаварыць з намёкам. Зразумець н.* **2.** *перан.* Слабая прымета чаго-н. *Не было ніякага намёку на дождж.*

**НАМЁРЗЛЫ**, -ая, -ае. Які замёрз на холадзе, азябнуў. *Намёрзлыя шчокі.*

**НАМЁРТВА**, *прысл.* Вельмі моцна, трывала; так, што нельга раз'яднаць. *Склявацъ н.*

**НАМЁТКА**[1], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Тое, што і *наметка.*

**НАМЁТКА**[2], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Тое, што і *намітка* (у 2 знач.).

**НАМЁТКА**[3], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Тое, што і *фастрыга.*

**НАМІНÁЛ**, -у, *м.* (спец.). Абазначаная вартасць (на таварах, грашовых знаках, каштоўных паперах). *Продаж па намінале.* || *прым.* **намінáльны**, -ая, -ае. *Намінальная цана.*

**НАМІНÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* намінал. **2.** Які толькі называецца, але не выконвае сваіх функцый; фіктыўны (кніжн.). *Лічыцца дзе-н. намінальна* (прысл.).

**НАМІНÁЦЬ** *гл.* намяць.

**НÁМІТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Доўгі вузкі кусок кужэльнага палатна, звычайна з каймой або вышыўкай. *Льняная н.* **2.** Даўні галаўны ўбор замужніх жанчын. *Ішлі жанчыны ў беласнежных намітках.*

**НАМНÓГА**, *прысл.* У значнай ступені, у некалькі разоў больш. *Зрабіць н. больш, чым планавалася.*

**НАМÓВА**, -ы, *мн.* -ы, -мóў, *ж.* (разм.). **1.** Дамоўленасць аб чым-н., угавор. **2.** Нагавор, паклёп на каго-н. *Ён стаў ахвярай намовы.* || *прым.* **намóўны**, -ая, -ае.

**НАМÓКЛЫ**, -ая, -ае. Які намок, мокры; прамоклы. *Намоклая салома. Н. сукенка.*

**НАМÓКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; намóк, -кла; -ні; *зак.* Стаць мокрым, прамокнуць. *Н. пад дажджом.* || *незак.* **намакáць**, -áю, -áеш, -áе.

**НАМÓРШЧЫЦЦА** *гл.* моршчыцца.

**НАМÓРШЧЫЦЬ** *гл.* моршчыць.

**НАМÓТВАЦЬ** *гл.* наматаць.

**НАМÓТКА** *гл.* матаць[1].

**НАМУДРАВÁЦЬ** *гл.* мудраваць.

**НАМÝЛ**, -у, *м.* Хворае ад націрання месца. *Н. на спіне каня.*

**НАМÝЛЯЦЬ** *гл.* муляць.

**НАМÝЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* **1.** Нацярпецца мук, гора. *Н. ў вайну.* **2.** Вельмі стаміцца. *Н. ў дарозе.*

**НАМÝЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго.* **1.** Многа, доўга памучыць каго-н., прынесці многа гора, мук. **2.** Вельмі стаміць.

**НАМУШТРАВÁЦЬ**, -рýю, -рýеш, -рýе; -рýй; -равáны; *зак., каго.* Навучыць каго-н. муштроўкай, вышкаліць. *Н. салдат.*

**НАМЫ́ЛІЦЦА** *гл.* мыліцца.

**НАМЫ́ЛІЦЬ** *гл.* мыліць.

**НАМЫ́Ў**, -мы́ву, *м.* **1.** *гл.* намыць. **2.** Грунт ля берага, намыты вадой. || *прым.* **намыўны́**, -áя, -óе.

**НАМЫ́ЦЬ**, -мы́ю, -мы́еш, -мы́е; -мы́ты; *зак.* **1.** *чаго.* Вымыць нейкую колькасць. *Н. бялізны.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Нанесці плынню, хвалямі. *Рака намыла водмель.* **3.** *чаго.* Прамываючы пароду вадой, здабыць нейкую колькасць чаго-н. (звычайна пра золата). *Н. золата.* **4.** *што* і *чаго.* Стварыць збудаванне з зямлі пры дапамозе землясоснай машыны. *Н. дамбу.* || *незак.* **намывáць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **намы́ў**, -мы́ву, *м.* (да 2—4 знач.).

**НАМЯЖÓЎВАЦЬ** *гл.* намежаваць.

**НАМЯКÁЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -áе; *незак.* Размякаць ад вільгаці.

**НАМЯКÁЦЬ**[2], -áю, -áеш, -áе; *незак., каму на каго-што* і *без дап.* Рабіць намёкі, гаварыць намёкамі, не выказваць адкрыта сваёй думкі. *Н. на жаніцьбу.* || *зак.* **намякнýць**, -мякнý, -мякнéш, -мякнé; -мякнём, -мекняцé, -мякнýць; -мякні́.

**НАМЯ́КЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў сырым, размяклым ад сырасці, вады. *Намяклыя сухары.*

**НАМЯ́КНУЦЬ** *гл.* мякнуць.

**НАМЯНЦІ́ЦЬ**, -мянчý, -мéнціш, -мéнціць; -мéнчаны; *зак., што.* Натачыць касу мянташкай.

**НАМЯРÁЦЬ** *гл.* намераць.

**НАМЯРЗÁЦЬ** *гл.* намерзнуць.

**НАМЯСІ́ЦЬ**, -мяшý, -мéсіш, -мéсіць; -мéшаны; *зак., чаго.* Месячы, прыгатаваць нейкую колькасць чаго-н. *Н. цеста.*

**НАМЯТÁЦЬ** *гл.* намесці.

**НАМЯ́ЦЬ**, -мнý, -мнéш, -мнé; -мнём, -мняцé, -мнýць; -мні́; *зак., чаго.* **1.** Размінаючы, прыгатаваць пэўную колькасць чаго-н. *Н. гліны.* **2.** Прымяць, змяць што-н. *Н. саломы.* **3.** Тое, што і *нацерці* (у 5 знач.; разм.). *Н. лёну.* ◊ **Намяць бакі** *каму* (разм.) — пабіць каго-н. || *незак.* **намінáць**, -áю, -áеш, -áе.

**НАМЯЧÁЦЬ** *гл.* намеціць[1].

**НАМЯШÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., чаго.* Мяшаючы, прыгатаваць у нейкай колькасці. *Н. свінням мяшанкі.* || *незак.* **намéшваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НÁНАВА**, *прысл.* **1.** Не так, як раней, інакш, па-новаму. *Перапісаць заяву н.* **2.** Яшчэ раз; зноў, спачатку. *Пачаць усё н.*

**НАНÁЙЦЫ**, -аў, *адз.* нанáец, -нáйца, *м.* Народ, які жыве на Далёкім Усходзе ў басейне ракі Амур. || *ж.* **нанáйка**, -і, *ДМ* -нáйцы, *мн.* -і, -нáек. || *прым.* **нанáйскі**, -ая, -ае.

**НАНАСІ́ЦЬ**, -нашý, -нóсіш, -нóсіць; -нóшаны; *зак., што.* Прынесці ў нейкай колькасці за некалькі прыёмаў. *Н. дроў.* || *незак.* **нанóшваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НА́НАЧ**, *прысл.* **1.** З наступленнем, пачаткам ночы. *Н. сабраўся дождж.* **2.** Перад начным сном. *Памыцца н.* **3.** На начлег. *Здарожыўся хлапчук і папрасіўся н.*

**НАНЕ́СЦІ**[1], -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; -нясём, -несяце́, -нясу́ць; -нанёс, -не́сла *і* -нясла́; -нясі́; -не́сены; *зак.* **1.** *чаго.* Прынесці ў нейкай колькасці. *Н. грыбоў. Н. падарункаў.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каго-што на каго-што.* Наштурхнуць цячэннем вады, ветрам і пад. (разм.). *Лодку нанесла на мель.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *безас., каго-што.* Нечакана з'явіцца, трапіць на каго-, што-н. (разм.). *Нанесла карнікаў у вёску.* **4.** *што на што.* Занесці, адзначыць якія-н. даныя. *Н. азёры на карту.* **5.** *што.* Прычыніць, зрабіць (тое, што абазначана назоўнікам). *Н. ўдар. Н. паражэнне.* ‖ *незак.* **нано́сіць**, -ношу, -но́сіш, -но́сіць. ‖ *наз.* **нанясе́нне**, -я, *н.* (да 4 і 5 знач.).

**НАНЕ́СЦІ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -нясе́; -не́сла *і* -нясла́; *зак., чаго.* Знесці нейкую колькасць яек (пра птушак).

**НАНІЗА́ЦЬ** *гл.* нізаць.

**НАНІ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *нізаць.*

**НА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (спец.). Грубая баваўняная тканіна з тоўстай пражы, звычайна жоўтага колеру. ‖ *прым.* **на́нкавы**, -ая, -ае.

**НАНО́ВА**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *нанава.*

**НАНО́С**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Зямля, пясок і пад., нанесеныя вадой, ветрам. *Пясчаныя наносы.*

**НАНО́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Нанесены ветрам, цячэннем. *Н. пясок.* **2.** *перан.* Выпадковы, не ўласцівы каму-н. (разм.). *Наносныя матывы ў паэзіі. Пазбавіцца ад усяго наноснага* (наз.).

**НАНО́ШВАЦЬ** *гл.* нанасіць.

**НАНПАРЭ́ЛЬ**, -і, *ж.* (спец.). Друкарскі шрыфт, драбнейшы за петыт. *Набраць спасылкі нанпарэллю.* ‖ *прым.* **нанпарэ́льны**, -ая, -ае.

**НАНСУ́К**, -у, *м.* (спец.). Тонкая баваўняная тканіна, падобная на льняную, з якой шыюць бялізну. *Прасціна з нансуку.* ‖ *прым.* **нансу́кавы**, -ая, -ае.

**НАНЮ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., чаго* (разм.). Панюхаць чаго-н. уволю, многа. *Н. кветак.*

**НАНЯСЕ́ННЕ** *гл.* нанесці[1].

**НАНЯ́ЦЦА**, наймуся, но́ймешся, но́ймецца; но́ймемся, но́ймецеся, но́ймуцца; наня́ўся, -нялася, -ло́ся, -лі́ся; наймі́ся; *зак.* Паступіць на працу па найме. *Н. калоць дровы.* ‖ *незак.* **наймацца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**НАНЯ́ЦЬ**, найму́, но́ймеш, но́йме; но́ймем, но́ймеце, но́ймуць; наня́ў, -няла́, -ло́, -лі́; наня́ты; *зак., каго-што.* Прыняць на работу або ўзяць у часовае карыстанне за плату. *Н. рабочых. Н. кватэру.* ‖ *незак.* **наймаць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **наём**, на́йму *і* **найм**, на́йму, *м.* *Працаваць па найме.*

**НАО́ГУЛ**, *прысл.* **1.** Увогуле, ва ўсіх адносінах. *Н. гэта адзіна правільнае рашэнне.* **2.** Заўсёды, ва ўсіх выпадках. *Ён н. такі.* **3.** У агульных рысах, у цэлым. *Гаварыць н.* **4.** Ужыв. ў знач. абагульняючага слова. *Н. ён імкнуўся дапамагаць абяздоленым.*

**НАПАВА́Л**, *прысл.* **1.** Адразу насмерць. *Забіць звера н.* **2.** *перан.* Вельмі моцна; пераканальна. *Факты білі н.*

**НАПАВЕ́Р**, *прысл.* У доўг, у крэдыт. *Набраць тавару н.*

**НАПАГАТО́ВЕ**, *прысл.* У стане гатоўнасці. *Трымаць стрэльбу н.*

**НАПАГАТО́Ў**. У выразе: **узяць напагатоў** (спец.) — аб прыёме, пры якім вінтоўка трымаецца ў стане гатоўнасці да стральбы.

**НАПА́Д**, -у, *М*-дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Хуткае дзеянне, накіраванае на каго-, што-н. для захопу, грабяжу, забойства і пад. *Адбіць н. ворага.* **2.** Абвінавачанні, папрокі, з якімі выступаюць супраць каго-, чаго-н. *Яму давялося выслухаць напады крытыкаў.*

**НАПА́ДАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *зак.* Падаючы, набрацца ў нейкай колькасці. *Нападала лісця з дрэў.*

**НАПАДА́ЦЬ** *гл.* напасці.

**НАПАДА́ЮЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Адзін з ігракоў нападзення ў спартыўных гульнях (у футбол, хакей і інш.). *Цэнтральны н.*

**НАПАДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* напасці. **2.** *зб.* Частка каманды, якая непасрэдна вядзе атаку на праціўніка пры гульні ў футбол, хакей і пад. *Цэнтр нападзення.*

**НАПА́ДКІ**, -аў. Прыдзіркі, папрокі, абвінавачанні. *Н. крытыкі. Падвяргацца нападкам.*

**НАПАДРО́СТ**. У выразе: **шыць нападрост** — з запасам, з разлікам на рост.

**НАПАІ́ЦЬ**, -паю́, -по́іш, -по́іць; -по́ены; *зак.* **1.** *гл.* паіць. **2.** *перан., што.* Насыціць, напоўніць чым-н. *Паветра напоена пахам чаромхі.* ‖ *незак.* **напо́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПА́ЙВАННЕ** *гл.* напаяць.

**НАПА́ЙВАЦЬ** *гл.* напаяць.

**НАПА́ЙКА**, -і, *ДМ* -па́йцы, *мн.* -і, -па́ек, *ж.* **1.** *гл.* напаяць. **2.** Напаяны кавалак металу. *Стальная н.*

**НАПАКА́З**, *прысл.* **1.** Для агульнага агляду. *Выставіць тавары н.* **2.** З мэтай звярнуць увагу, для выгляду. *Рабіць усё толькі н.*

**НАПАКУ́ТАВАЦЦА**, -туюся, -туешся, -туецца; -туйся; *зак.* Пераджыць, вынесці многа пакут. *Н. ў палоне.*

**НАПА́Л**, -у, *м.* **1.** *гл.* напаліць. **2.** Ступень свячэння напаленага цела. *Н. ніці лямпачкі.* **3.** *перан.* Стан узбуджанасці, хвалявання. *Спрэчкі дасягнулі напалу.*

**НАПАЛАВІ́НУ**, *прысл.* **1.** У няпоўным, палавінным памеры, аб'ёме. *Хата н. пустая.* **2.** Не да канца, не зусім. *Зрабіць справу н.*

**НАПАЛА́М**, *прысл.* **1.** На дзве роўныя часткі, надвае. *Падзяліць маёмасць н.* **2.** У роўнай долі з кім-н. *Наймаць кватэру н. з сяброўкай.* **3.** Напалавіну, у сумесі з чым-н. *Ялавічына н. са свінінай.*

**НАПАЛІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што і чаго.* **1.** *гл.* паліраваць. **2.** Паліруючы, зрабіць у нейкай колькасці. *Н. цацак.* ‖ *незак.* **напалі-ро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПАЛІ́ЦЬ**, -палю́, -па́ліш, -па́ліць; -па́лены; *зак.* **1.** *што і ў чым.* Нагрэць паленнем[1] (у 4 знач.). *Н. у хаце.* **2.** *што.* Нагрэць да вельмі высокай тэмпературы. *Н. жалеза.* **3.** *чаго.* Нагатаваць у нейкай колькасці шляхам перапальвання. *Н. вугалю з дрэва.* **4.** *чаго.* Расходаваць у нейкай колькасці (разм.). *Н. электрычнасці на сто рублёў.* ‖ *незак.* **напа́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **напа́л**, -у, *м.* *і* **напа́льванне**, -я, *н.*

**НАПА́ЛМ**, -у, *м.* Спецыяльная гаручая сумесь для бомб, агнямётаў і інш. *Спаліць напалмам.* ‖ *прым.* **напа́лмавы**, -ая, -ае. *Напалмавая бомба.*

**НАПАЛО́ВУ**, *прысл.* Тое, што і *напалавіну.*

**НАПАЛО́ХАЦЦА** *гл.* палохацца.

**НАПАЛО́ХАЦЬ** *гл.* палохаць.

**НАПАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны; *зак., каго-чаго.* Настраляць, здабыць дзічыны на паляванні.

**НАПАМА́ДЗІЦЦА** *гл.* памадзіцца.

**НАПАМА́ДЗІЦЬ** *гл.* памадзіць.

**НАПАМІ́Н**, -у, *м.* (разм.). Тое, што і *напамінак.*

**НАПАМІ́НАК**, -нку, *м.* **1.** *гл.* напомніць. **2.** Паведамленне, якое напамінае аб чым-н. *Атрымаць н.*

**НАПАМІНА́ННЕ** *гл.* напомніць.

**НАПАМІНА́ЦЬ** *гл.* напомніць.

**НАПАМПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -па́ваны; *зак., што і чаго.* Напоўніць (вадою або паветрам) пры дапамозе помпы. ‖ *незак.* **напампо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **напампо́ўванне**, -я, *н.*

**НАПА́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто працуе ў пары з кім-н. *Шаферы-напарнікі.* ‖ *ж.* **напа́рніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **напа́рніцкі**, -ая, -ае.

**НАПАРО́ЦЦА**, -пару́ся, -по́рашся, -по́рацца; -пары́ся; *зак.* **1.** *на што.* Параніць сябе, наткнуўшыся на што-н. вострае. *Н. на цвік.* **2.** *перан., на каго-што.* Сутыкнуцца з кім-, чым-н. нежаданым, неспадзяваным (разм.). *Н. на засаду.* ‖ *незак.* **напо́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАПАРО́ЦЬ**, -пару́, -по́раш, -по́ра; -пары́; *зак., чаго.* **1.** Распароць нейкую колькасць чаго-н. сшытага. *Н. сарочак.* **2.** Пашкодзіць чым-н. вострым. *Н. руку.* ‖ *незак.* **напо́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПА́РСТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Маленькі каўпачок, які надзяваецца на палец пры шыцці, каб не ўкалоцца іголкай. ‖ *прым.* **напа́рсткавы**, -ая, -ае.

**НАПАРТА́ЧЫЦЬ** *гл.* партачыць.

**НАПА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* **1.** *чаго.* Прыгатаваць параннем. *Н. буракоў. Н. бобу.* **2.** *каго-што.* Добра папарыць (разм.). *Н. спіну ў лазні.* **3.** *чаго.* Кі-

пячэннем прыгатаваць нейкую колькасць чаго-н. *Н. малака.* ‖ *незак.* **напа́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **напа́рыцца**, -руся, -рышся, -рыцца (да 2 знач.); *незак.* **напа́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАПА́С**, -у, *м.* Ступень адкормленасці жывёлы.

**НАПА́СВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -се́цца; *зак.* Наесціся на пашы; многа папасвіцца (пра жывёлу, птушак).

**НАПА́СВІЦЬ**, -су́, -се́ш, -се́; -сём, -сяце́, -су́ць; напа́свіў, -віла; напасі́; *зак., каго.* Пасучы на пашы, накарміць (пра жывёлу, птушак). *Н. кароў.*

**НАПАСКУ́ДЗІЦЬ** *гл.* паскудзіць.

**НАПАСЛЕ́ДАК**, *прысл.* Пад канец, завяршаючы што-н. *Сказаць н.*

**НАПА́СЦІ**, -паду́, -падзе́ш, -падзе́; -падзём, -падзяце́, -паду́ць; напа́ў, -па́ла; -падзі́; *зак., на каго-што.* **1.** Кінуцца на каго-, што-н. з мэтай захопу, грабяжу, забойства і пад., а таксама наогул пачаць дзейнічаць супраць каго-н. з варожай мэтай. *Н. на суседнюю краіну. Звер напаў на чалавека.* **2.** Рэзка, адмоўна выступіць супраць каго-, чаго-н. *Н. на сваіх крытыкаў.* **3.** З прагнасцю пачаць што-н. рабіць (разм.). *Н. на ежу.* **4.** Выпадкова натрапіць на што-н., знайсці што-н. *Н. на ягаднае месца. Н. на воўчы след.* **5.** Раптоўна ахапіць, з'явіцца (пра душэўны або фізічны стан). *На мяне напала роспач. Напаў кашаль.* ◊ **Не на таго напаў (нарваўся)** (разм., часта іран.) — маеш справу не з тым, на каго разлічваў. ‖ *незак.* **напада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **нападзе́нне**, -я, *н.*

**НАПА́СЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* (разм.). Бяда, няшчасце. *Што за н. такая. Ад напасці і чорт плача* (з нар.).

**НАПАТКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Ідучы, едучы, сустрэцца з кім-н., трапіцца каму-н. насустрач. *Па дарозе яму напаткаўся паляўнічы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сустрэцца, трапіцца пры чытанні, у рабоце і пад. *У кнізе нечакана напаткаліся цікавыя звесткі.*

**НАПАТКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* **1.** Ідучы або едучы, сустрэць каго-н., натрапіць на каго-, што-н. *Н. воўка.* **2.** *перан.* Здарыцца, спасцігнуць (пра бяду, няшчасце і пад.). *Пад старасць яго напаткала гора.*

**НАПАЎ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае: 1) напалову з чым-н., напр., *напаўшарсцяны;* 2) не зусім, не да канца, напр.: *напаўмёртвы, напаўзабыты;* 3) палавіна таго, аб чым гаворыцца ў другой частцы, напр., *напаўсфера.*

**НАПАЎАСВЕ́ТЛЕНЫ**, -ая, -ае. Слаба, недастаткова асветлены. *Напаўасветленая зала.*

**НАПАЎГО́ЛАСУ**, *прысл.* Не на поўны голас. *Спяваць н.*

**НАПАЎЗАБЫ́ТЫ**, -ая, -ае. Амаль забыты. *Н. вобраз.*

**НАПАЎЗЦІ́**, -паўзу́, -паўзе́ш, -паўзе́; -паўзём, -паўзяце́, -паўзу́ць; напо́ўз, -паўзла́, -паўзло́; -паўзі́; *зак.* **1.** *на каго-што.* Паўзучы, наткнуцца на што-н. *Н. на камень.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыпаўзці, запаўзці куды-н. у вялікай колькасці. *Напаўзло мурашак у хату.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Насунуцца, засланяючы сабой што-н. *Напаўзлі хмары з поўначы. Шапка напаўзла на вочы.* ‖ *незак.* **напаўза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАПАЎКРО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які атрымліваецца ад скрыжавання чыстакроўнай пароды з простай; не чыстакроўны.

**НАПАЎКРУ́ГЛЫ**, -ая, -ае. Які мае форму паўкруга. *Напаўкруглае акно.*

**НАПАЎМЕ́РТВЫ**, -ая, -ае. **1.** Амаль мёртвы, блізкі да смерці. *Н. чалавек.* **2.** *перан.* Бязлюдны, пусты. *Напаўмёртвая пустыня.*

**НАПАЎНЕ́ННЕ** *гл.* напоўніцца, напоўніць.

**НАПАЎНЯ́ЦЦА** *гл.* напоўніцца.

**НАПАЎНЯ́ЦЬ** *гл.* напоўніць.

**НАПАЎПУСТЫ́**, -а́я, -о́е. Не зусім напоўнены, напалову пусты. *Напаўпустая зала.*

**НАПАЎРАЗБУ́РАНЫ**, -ая, -ае. Разбураны часткова, не да канца. *Н. замак.*

**НАПАЎСАГНУ́ТЫ**, -ая, -ае. Трохі, не зусім сагнуты. *Н. цвік. Напаўсагнутыя ногі.*

**НАПАЎСО́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не зусім прачнуўся або не зусім заснуў. *Напаўсоннае дзіця.* **2.** Амаль без сну. *Напаўсонная ноч.*

**НАПАЎЦЁМНЫ**, -ая, -ае. Слаба асветлены. *Н. пакой.*

**НАПАЎХМЫЗНЯ́К**, -у́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Расліна з драўлянымі ніжнімі і травяністымі верхнімі часткамі. ‖ *прым.* **напаўхмызняко́вы**, -ая, -ае.

**НАПАЦЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Пакрыты вільгаццю; запацелы. *Напацелае акно.*

**НАПАЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Пакрыцца вільгаццю, запацець. *Шыбы напацелі.*

**НАПАЧА́ТКУ**, *прысл.* (разм.). Спярша, спачатку. *Н. усё было добра.*

**НАПАЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што* і *чаго.* Паяннем прымацаваць або, прыпайваючы, падоўжыць што-н. *Н. канец восі.* ‖ *незак.* **напа́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **напа́йванне**, -я, *н.* і **напа́йка**, -і, *ДМ* -па́йцы, *ж.*

**НАПЕРАБО́Й**, *прысл.* Перабіваючы, перапыняючы адзін аднаго. *Загаманілі н.*

**НАПЕРАВЕ́С**, *прысл.* Трымаючы перад сабой, з нахілам уперад (пра стрэльбу, вінтоўку, піку і пад.). *З пікай н.*

**НАПЕРАГО́НКІ**, *прысл.* Стараючыся апярэдзіць адзін аднаго, навыперадкі. *Кінуцца н.*

**НАПЕ́РАД**, *прысл.* і *прыназ. з Д.* **1.** *прысл.* У напрамку перад сабой; у напрамку руху. *Зрабіць крок н. Глядзець н.* **2.** *перан.* У будучыню. *Жыццё кліча нас н.* **3.** *прысл.* Раней часу, раней за што-н. іншае (разм.). *Пахваліцца н.* **4.** *прысл.* Раней вызначанага тэрміну, авансам. *Узяць плату н.* **5.** *у знач. выкл.* Ужыв. як каманда рухацца ў напрамку перад сабой. *«Н.!» — скамандаваў камбат.* **6.** *прыназ. з Д.* Выражае прасторавыя адносіны: ужыв. пры назве асобы ці прадмета, на лінію руху якіх ці ў напрамку перад якімі хто-, што-н. выходзіць, выбягае і пад. *Забегчы н. каму-небудзь.*

**НАПЕ́РАДЗЕ**, *прысл.* і *прыназ.* **1.** *прысл.* На нейкай адлегласці перад кім-, чым-н. *Ісці н. Н. быў лес.* **2.** *прысл.* У будучым. *У цябе яшчэ ўсё н. Н. была цікавая работа.* **3.** *прыназ. з Р.* Выражае прасторавыя адносіны: ужыв. пры назве асобы ці прадмета, на некаторай адлегласці перад якімі хто-, што-н. знаходзіцца. *Ісці н. усіх. Сесці н. каго-н.*

**НАПЕРАКО́Р**. **1.** *прысл.* Насуперак чаканням, не так, як хто-н. хацеў. *Гаварыць н.* **2.** *прыназ. з Д.* Не зважаючы на што-н. *Н. стыхіі.*

**НАПЕРАКО́С**, *прысл.* **1.** Коса, не прама ў адносінах да чаго-н. *Дзверы павяло н.* **2.** *перан.* Не так, як трэба, як жадалася. *Жыццё пайшло н.*

**НАПЕРАРЭ́З**. **1.** *прысл.* Перасякаючы чый-н. шлях. *Кінуцца н.* **2.** *прыназ. з Д.* Выражае прасторавыя адносіны: ужыв. пры назве асобы ці прадмета, шлях якіх хто-, што-н. перасякае. *Бегчы н. машыне.*

**НАПЕ́РСНІК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Частка верхавой конскай збруі з трох рамянёў, з якіх адзін ідзе ад персяў да папругі, а два — па баках.

**НАПЕ́РСНІК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Блізкая асоба, якой давяраюць свае тайны. ‖ *ж.* **напе́рсніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**НАПЕ́РСТАЎКА**, -і, *ДМ* -таўцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Травяністая лекавая расліна сямейства залознікавых з кветкамі, якія нагадваюць напарстак.

**НАПЕ́РЦІ**, -пру́, -прэ́ш, -прэ́; -пры́м, -праце́, -пру́ць; напёр, -пе́рла; напры́; *зак.* (разм.). **1.** *на каго-што.* Штурхаючы, націснуць усім целам. *Н. на дзверы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыйсці ў вялікай колькасці. *У залу наперла многа людзей.* **3.** *чаго.* Прынесці, прывезці ў вялікай колькасці чаго-н. *Н. дошак на падлогу.* **4.** *чаго.* Напхаць у вялікай колькасці чаго-н. *Н. вопраткі ў шафу.* **5.** *безас., каму.* Вельмі спатрэбіцца, прыспічыць. *Наперла ж яму менавіта сёння ехаць.* ‖ *незак.* **напіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 і 4 знач.).

**НАПЕ́РЧЫЦЬ** *гл.* перчыць.

**НАПЕ́Ў**, -пе́ву, *мн.* -пе́вы, -пе́ваў, *м.* Тое, што і *мелодыя. Танцавальны н. Народныя напевы.*

**НАПЕ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Меладычны, пявучы. *Напеўныя вершы.* ‖ *наз.* **напе́ўнасць**, -і, *ж.*

**НАПЕ́ЦЦА**, -пяю́ся, -пяе́шся, -пяе́цца; -пяёмся, -пеяце́ся, -пяю́цца; *зак.* (разм.). Уволю, доўга папець. *І напеліся, і натанцаваліся.*

**НАПЕ́ЦЬ**, -пяю́, -пяе́ш, -пяе́; -пяём; -пеяце́, -пяю́ць; *зак.* **1.** *чаго.* Спець многа чаго-н. **2.** *што.* Перадаць голасам. *Н. арыю.* **3.** *чаго* і *без дап.* Нагаварыць, напляткарыць на каго-н. (разм.). ‖ *незак.* **напява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2 знач.).

**НАПІЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак., чаго.* Пілуючы, нарэзаць у нейкай колькасці. *Н. дроў на зіму.* ‖ *незак.* **напіло́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПІ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Інструмент у выглядзе стальнога бруска з насечкай, які ўжываецца для загладжвання металічнай, драўлянай і іншай паверхні. *Круглы н. Працаваць напільнікам.* ‖ *прым.* **напі́льнікавы**, -ая, -ае.

**НАПІНА́ННЕ** *гл.* напяць.

**НАПІНА́ЦЦА** *гл.* напяцца.

**НАПІНА́ЦЬ** *гл.* напяць.

**НАПІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* (разм.). **1.** *гл.* наперці. **2.** *на каго-што.* Рашуча адцясняць, цясніць. *Танкі напіралі з флангаў.* **2.** *перан., на што.* Асабліва падкрэсліваць што-н., настойваць на чым-н. *Н. на неабходнасць праверкі фактаў.*

**НАПІСА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Форма літары на пісьме, а таксама правапіс якога-н. слова. *Н. літары «д». Правільнае н. слова.*

**НАПІСА́ЦЬ** *гл.* пісаць.

**НАПІ́ТАК**, -тку, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Прадукт, прыгатаваны для піцця; напой. *Прахаладжальныя напіткі. Спіртныя напіткі.*

**НАПІХА́ЦЬ** *гл.* напхаць.

**НАПІ́ХВАЦЬ** *гл.* напхаць.

**НАПІ́ЦЦА**, -п'ю́ся, -п'е́шся, -п'е́цца; -п'ёмся, -п'яце́ся, -п'ю́цца; напі́ўся, -піла́ся, -ло́ся; напі́ся; *зак.* **1.** *чаго* і *без дап.* Выпіць чаго-н., каб наталіць смагу; папіць. *Н. вады.* **2.** Дайсці да стану ап'янення. *Н. на вяселлі.* **3.** *перан., чаго* і *без дап.* Насыціцца, прасякнуцца чым-н. ◊ **Напіцца (насмактацца) крыві** *чыёй* (разм., неадабр.) — памучыць каго-н., паздзекавацца з каго-н. ‖ *незак.* **напіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**НАПЛА́ВІЦЬ**, -пла́ўлю, -пла́віш, -пла́віць; -пла́ўлены; *зак., што* і *чаго.* **1.** Прырабіць шляхам плаўкі. **2.** Прыгатаваць шляхам плаўкі нейкую колькасць чаго-н. *Н. свінцу.* ‖ *незак.* **наплаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **напла́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **напла́вачны**, -ая, -ае.

**НАПЛАДЗІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -пло́дзіцца; *зак., каго (чаго)* (разм.). Радзіцца або развесціся ў вялікай колькасці. *Напладзілася* (безас.) *мух. Напладзілася* (безас.) *гультаёў* (перан.).

**НАПЛАДЗІ́ЦЬ**, -пладжу́, -пло́дзіш, -пло́дзіць; *зак.* (разм.). **1.** *каго.* Радзіць у вялікай колькасці. *Н. дзяцей.* **2.** *перан., каго-чаго.* Арганізаваць, стварыць у вялікай колькасці. *Н. аддзелаў.*

**НАПЛА́КАЦЦА**, -пла́чуся, -пла́чашся, -пла́чацца; -пла́чся; *зак.* **1.** Паплакаць многа. **2.** *перан.* Нацярпецца, перажыць многа гора, непрыемнасцей (разм.). *Наплачацца яна з такім работнікам.*

**НАПЛА́КАЦЬ**, -пла́чу, -пла́чаш, -пла́ча; -пла́ч; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Праліць нейкую колькасць слёз (разм.). **2.** *што.* Плачучы, давесці да чырвані, прыпухласці (вочы). ◊ **(Як) кот наплакаў** (разм., жарт.) — пра вельмі малую колькасць чаго-н.

**НАПЛАСТАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* напластаваць. **2.** *мн.* -і, -аў. Асадкавыя ўтварэнні ў горных пародах у выглядзе пластоў. *Напластаванні зямной кары. Геалагічныя напластаванні.*

**НАПЛАСТАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ту́ецца; *зак.* **1.** Адкласціся пластамі. **2.** *перан.* Захавацца ў пэўнай паслядоўнасці за доўгі перыяд часу. *Напластаваліся ўспаміны.* ‖ *незак.* **напласто́ўвацца**, -аецца.

**НАПЛАСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., чаго.* **1.** Накласці пластамі. **2.** Нарэзаць пластамі (спец.). *Н. рыбы для салення.* **3.** *перан.* Пакінуць які-н. адбітак за доўгі перыяд часу. ‖ *незак.* **напласто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **напластава́нне**, -я, *н.*

**НАПЛАЎНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які робіцца на плывучых апорах. *Н. мост.* **2.** Які закідваецца па цячэнні (пра рыбалоўную снасць).

**НАПЛЕ́СЦІ**, -ляту́, -ляце́ш, -ляце́; -ляцём, -леце́це, -ляту́ць; наплёў, -ляла́, -ло́; напляці́; -ле́цены; *зак., чаго.* **1.** Сплесці нейкую колькасць чаго-н. *Н. кошыкаў.* **2.** *перан.* і *без дап.* Нагаварыць рознага глупства, нахлусіць (разм.). ‖ *незак.* **наплята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 знач.).

**НАПЛЕ́ЧНІК**, -а, *мн.* і, -аў, *м.* **1.** Наплечнае ўпрыгожанне на адзежы. **2.** Частка старадаўніх воінскіх даспехаў, якая засцерагала плечы ад удараў. **3.** Частка спартыўнага рыштунку, якая засцерагае плечы варатара ад пашкоджанняў.

**НАПЛЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які носяць на плячах. *Наплечныя рамяні.*

**НАПЛЫ́СЦІ**, -лыву́, -лыве́ш, -лыве́; -лывём, -лывяце́, -лыву́ць; наплы́ў, -лыла́, -ло́; -лыві́; *зак.* **1.** *на каго-што.* Плывучы, наткнуцца. *Н. на камень.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыплыўшы, набрацца ў нейкай колькасці. *Наплыло* (безас.) *смецця да берага.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Нацячы на паверхню чаго-н. *Наплылі слёзы.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Плаўна насунуцца, закрыць сабой што-н. *Наплылі хмары на сонца.* **5.** *перан.* Ахапіць, з'явіцца (пра думкі, пачуцці, успаміны і пад.). *Наплылі ўспаміны.* ‖ *незак.* **наплыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **напльі́ў**, -лыву, *м.* (да 2 і 3 знач.).

**НАПЛЫ́Ў**, -лы́ву, *м.* **1.** *гл.* наплысці. **2.** Тое, што наплыло, сабралася. *Н. водарасцей.* **3.** *перан.* Вялікая колькасць каго-, чаго-н. *Н. пакупнікоў. Н. пачуццяў.* **4.** Паступовая змена кадраў у кінафільме (спец.). **5.** Нарасць на ствале дрэва. *Н. на бярозе.*

**НАПЛЫ́ЦЬ**, -лыву́, -лыве́ш, -лыве́; -лывём, -лывяце́, -лыву́ць; -лы́ў, -лыла́, -ло́; *зак.* Тое, што і *наплысці.*

**НАПЛЮ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., чаго* і *без дап.* Плюхаючы, разліць, наліць на што-н. *Н. вады на падлогу.* ‖ *незак.* **наплю́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПЛЯВА́ЦЬ** *гл.* пляваць.

**НАПЛЯВУ́ЗГАЦЬ** *гл.* плявузгаць.

**НАПЛЯТКА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак.* (разм.). Нагаварыць плётак. *Суседкі напляткарылі пра дзяўчыну.*

**НАПНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* (разм.). Тое, што і *напяцца.*

**НАПНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* (разм.). Тое, што і *напяць* (у 1 знач.).

**НАПО́Й**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Тое, што і *напітак.*

**НАПО́ЙВАЦЬ** *гл.* напаіць.

**НАПО́МНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *зак.* **1.** *аб кім-чым, пра каго-што* і *без дап.* Прымусіць каго-н. успомніць. *Н. пра сябе. Н. аб мінулым.* **2.** *каго-што.* Здацца падобным на каго-, што-н.; нагадаць. *Гэты чалавек напомніў сябра.* ‖ *незак.* **напаміна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **напаміна́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **напамі́нак**, -нку, *м. Падзякаваць за н.*

**НАПО́ПЕРАК**, *прысл.* і *прыназ.* (разм.). **1.** *прысл.* Па шырыні чаго-н., ушырыню; упоперак. *Разрэзаць батон н.* **2.** *прысл.* Наперакор, не згаджаючыся з кім-н. *Гаварыць н.* **3.** *прыназ з Д.* Насуперак каму-, чаму-н. *Н. волі бацькі. Н. жаданням.*

**НАПО́Р**, -у, *м.* **1.** Дзеянне моцнай сілы; націск. *Н. ветру. Не вытрымаць напору лёду.* **2.** Энергічнае ўздзеянне на каго-н.; напад, націск. *Пад напорам сяброў ён вымушаны быў прызнацца. Н. ворага.*

**НАПО́РНЫ**[1], -ая, -ае. Які служыць для ўтварэння напору вадкасці. *Н. бак. Напорныя трубы.*

**НАПО́РНЫ**[2], -ая, -ае. Тое, што і *напорысты.* ‖ *наз.* **напо́рнасць**, -і, *ж.*

**НАПО́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Які рашуча дабіваецца сваёй мэты, настойлівы. *Н. чалавек. Н. характар.* ‖ *наз.* **напо́рыстасць**, -і, *ж.*

**НАПО́ЎНІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніцца; *зак.* **1.** Стаць поўным, занятым; насыціцца, запоўніцца чым-н. *Вежа напоўнілася вадой. Пакой напоўніўся пахамі.* **2.** *перан.* Стаць поўнасцю занятым якімі-н. думкамі, пачуццямі і пад. *Сэрца напоўнілася радасцю.* ‖ *незак.* **напаўня́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **напаўне́нне**, -я, *н. Пульс добрага напаўнення.*

**НАПО́ЎНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што кім-чым.* **1.** Зрабіць поўным, занятым; насыціць, запоўніць чым-н. *Н. мяшок мукой. Птушыныя галасы напоўнілі лес. Водар кветак напоўніў пакой.* **2.** *перан.* Запоўніць, заняць цалкам (пра думкі, пачуцці і пад.). *Н. сэрца жалем.* ‖ *незак.* **напаўня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **напаўне́нне**, -я, *н.*

**НАПРА́ВА**, *прысл.* У правы бок, на правым баку. *Павярнуць н.* ◊ **Направа і налева** — без разбору, усім, усіх і пад.

**НАПРА́ВІЦЬ**, -ра́ўлю, -ра́віш, -ра́віць; -ра́ўлены; *зак.* **1.** *што.* Адрамантаваць, зрабіць прыгодным для карыстання. *Н. рукавік.* **2.** *што.* Падвастрыўшы, зрабіць прыгодным для карыстання. *Н. брытву.* **3.** *чаго.* Унесці вялікую колькасць папраўвак, змен (у тэкст, карэктуру і пад.). *Н. памылак.* ‖ *незак.* **напраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 1 знач.).

**НАПРАДВЕ́СНІ**, *прысл.* На зыходзе зімы, перад самым наступленнем вясны. *Сын прыехаў дамоў н.*

**НАПРА́ЖЫЦЬ**, -ра́жу, -ра́жыш, -ра́жыць; -ра́жаны; *зак., чаго.* Пражаннем прыгатаваць нейкую колькасць. *Н. бобу.* ‖ *незак.* **напра́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПРАКА́Т**, *прысл.* У часовае карыстанне за плату. *Узяць веласіпед н.*

**НАПРАКТЫКАВА́ЦЦА** *гл.* практыкавацца.

**НАПРАКУ́ДЗІЦЬ** *гл.* пракудзіць.

**НАПРАЛЁТ**, *прысл.* Без перапынку, увесь час. *Працаваць усю ноч н.*

**НАПРАЛО́М**, *прысл.* Не лічачыся з перашкодамі, абставінамі (пры дасягненні мэты). *Ісці н. Дзейнічаць н.*

**НАПРА́МАК**, -мку, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* **1.** Лінія руху, бок, у які накіраваны рух, дзеянне. *Ісці ў паўночным напрамку. Змяніць н.* **2.** *перан.* Шлях развіцця чаго-н. *Н. развіцця краіны.* **3.** Участак фронту. *Баі на заходнім напрамку.* **4.** Грамадская, навуковая і інш. плынь. *Рэалістычны н. у літаратуры.* **5.** *у знач. прысл.* **напра́мкам**. У кірунку да чаго-н. *Пайсці напрамкам да лесу.* ◊ **Браць (узяць) напрамак** — пачынаць рухацца, ісці ў якім-н. напрамку.

**НАПРАМІ́ЛЫ**. У выразе: **напрамілы бог** — што ёсць сілы клікаць, крычаць, прасіць.

**НАПРАМКІ́**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *напрасткі.*

**НАПРАРО́ЧЫЦЬ** *гл.* прарочыць.

**НАПРАСАВА́ЦЬ**, -сую, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* **1.** *што.* Выпрасаваць добра, акуратна. *Н. сукенку.* **2.** *каго.* Выпрасаваць нейкую колькасць чаго-н. *Н. бялізны.*

**НАПРАСІ́ЦЦА**, -рашу́ся, -ро́сішся, -ро́сіцца; *зак.* **1.** Просьбамі і намёкамі дабіцца запрашэння на ўдзел у чым-н. *Н. ў госці.* **2.** *на што.* Сваімі паводзінамі выклікаць якія-н. адносіны да сябе. *Н. на камплімент.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Узнікнуць, з'явіцца. *Напрасілася рашэнне.* ‖ *незак.* **напро́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАПРАСІ́ЦЬ**, -рашу́, -ро́сіш, -ро́сіць; *зак., каго* (разм.). Наклікаць, запрасіць вялікую колькасць каго-н. *Н. гасцей.* ‖ *незак.* **напро́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПРАСТКІ́**, *прысл.* Па прамой лініі, самым кароткім шляхам. *Пайсці ў вёску н.*

**НАПРАСЦЯ́К**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *напрасткі.*

**НАПРА́ЎДУ**, *прысл.* (разм.). На самай справе, сапраўды. *Ён н. лепшы спартсмен у класе.*

**НАПРА́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Майстар па напраўцы чаго-н. *Н. брытваў.* ‖ *ж.* **напра́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**НАПРАЦАВА́ЦЦА**, -цу́юся, -цу́ешся, -цу́ецца; -цу́йся; *зак.* Папрацаваць многа, уволю, стаміцца ад працы.

**НАПРО́СТ**, *прысл.* Не звязваючы (у снапы), свабодна. *Класці жыта н.*

**НАПРО́ЦІ**, *прысл.* і *прыназ.* (разм.). **1.** *прысл.* Тое, што і *насупраць, насупроць. Сядзець н.* **2.** *прыназ. з Р.* Прама перад кім-н. *Сын сядзеў н. бацькі.*

**НАПРУ́ЖАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* напружыць. **2.** Сканцэнтраванне намаганняў, затрата вялікай энергіі, сіл для ажыццяўлення чаго-н. *Слухаць з напружаннем.* **3.** Ненатуральнае становішча, напружанасць у якой-н. галіне дзейнасці. *Н. міжнародных адносін.* **4.** Велічыня, якая характарызуе сілу ціску або расцяжэння, што прыходзіцца на адзінку плошчы цвёрдага цела (спец.). **5.** Велічыня, якая характарызуе работу электрычных сіл пры перамяшчэнні электрычнага зараду (спец.). *Электрычнае н.*

**НАПРУ́ЖАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца ў стане напружання. *Напружаныя мускулы.* **2.** Які патрабуе затраты вялікіх сіл, увагі. *Напружаная праца. Н. час.* **3.** *перан.* Складаны, цяжкі, які патрабуе ўрэгулявання. *Напружаныя міжнародныя адносіны.* **4.** *перан.* Які выражае напружанне, ненатуральны. *Н. шэпт.* ‖ *наз.* **напру́жанасць**, -і, *ж.*

**НАПРУ́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць пругкім. *Н. мускулы.* **2.** *перан.* Узмацніць, павысіць ступень праяўлення чаго-н. *Н. зрок. Н. слых. Н. голас. Н. памяць.* ‖ *незак.* **напру́жваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **напру́жанне**, -я, *н.*

**НАПРЫ́КЛАД**, *пабочн. сл.* Для прыкладу (ужыв. пры пералічэнні, пры паясненні слова ў сказе, для ілюстрацыі папярэдняга выказвання). *Н., можна пайсці ў кіно, у тэатр.*

**НАПРЭ́ГЧЫ**, -рагу́, -ражэ́ш, -ражэ́; -ражо́м, -ражаце́, -рагу́ць; напро́г, -рэ́гла *і* -рагла́, -рэ́гла *і* -рагло́; -ражы́; -рэ́жаны; *зак., чаго.* Тое, што і *напражыць.*

**НАПСАВА́ЦЬ**, -сую́, -суе́ш, -суе́; -суём, -суяце́, -сую́ць; -су́й; -сава́ны; *зак.* **1.** *чаго.* Сапсаваць нейкую колькасць чаго-н. *Н. матэрыялу.* **2.** *каму-чаму.* Прынесці шкоду. *Н. справе.*

**НАПУ́ДЗІЦЦА** *гл.* пудзіцца.

**НАПУ́ДЗІЦЬ** *гл.* пудзіць.

**НАПУ́ДРЫЦЦА** *гл.* пудрыцца.

**НАПУ́ДРЫЦЬ** *гл.* пудрыць.

**НАПУЖА́ЦЦА** *гл.* пужацца.

**НАПУЖА́ЦЬ** *гл.* пужаць.

**НАПУ́ЛЬСНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Павязка, якая накладваецца на тое месца на руцэ, дзе прашчупваецца пульс.

**НА́ПУСК**, -у, *м.* **1.** *гл.* напусціць. **2.** Частка адзення, якая свабодна звісае, выступае над чым-н. *Кофтачка з напускам.* **3.** Спуск сабак на звера ў час палявання (спец.).

**НАПУСКНЫ́**, -а́я, -о́е. Ненатуральны, штучны; няшчыры. *Напускная весялосць. Напускная строгасць.*

**НАПУСЦІ́ЦЬ**, -пушчу́, -пу́сціш, -пу́сціць; *зак.* **1.** *каго-чаго.* Даць доступ куды-н. вялікай колькасці каго-, чаго-н. *Н. людзей у залу. Н. вады ў ванну. Н. холаду ў хату.* **2.** *што* і *чаго на каго (што).* Надаць сабе, сваім паводзінам нейкі выгляд, характар (разм.). *Н. на сябе строгасць.* **3.** *каго-што на каго-што.* Накіраваць для нападу (разм.). *Н. сабак на звера.* **4.** *што.* У народных павер'ях: з дапамогай нейкай вышэйшай сілы наслаць на каго што-н. *Н. чары, хваробу.* **5.** *што* і *чаго.* Дадаць, павялічыць у памеры пры раскроі. *Н. на швы.* ‖ *незак.* **напуска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **на́пуск**, -у, *м.* (да 1—3 і 5 знач.).

**НАПУ́ХЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які напух, стаў успухлым. *Напухлая рука.* ‖ *наз.* **напу́хласць**, -і, *ж.*

**НАПУ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; напу́х, -хла; -ні; *зак.* Стаць ненармальна пухлым, успухнуць. *Напух нос.* ‖ *незак.* **напуха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАПХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сабрацца, стоўпіцца ўнутры чаго-н.; набіцца. *Напхалася людзей у хату.* **2.** Наесціся (груб.). *Н. бульбы.*

**НАПХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Напоўніць, запіхваючы ўнутр чаго-н. *Н. мяшок саломай.* **2.** *перан. каго.* Сабраць у адным месцы, запоўніўшы яго да адказу (разм.). *Н. людзей у машыну.* **3.** *перан., што.* З'есці многа чаго-н. (груб.). *Н. жывот бульбай.* ‖ *незак.* **напіха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **напі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПЫЛІ́ЦЬ** *гл.* пыліць.

**НАПЫ́РСКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* і *чаго.* **1.** Пакрыць пырскамі паверхню чаго-н. *Н. вады на падлогу.* **2.** Надушыць чым-н. пахучым. *Н. духамі.* ‖ *незак.* **напы́рскваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Распытваючы, знайсці патрэбную рэч, патрэбнага чалавека. *Н. добрую карову ў суседняй вёсцы.* ‖ *незак.* **напы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПЫТЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ва́ны; *зак., чаго.* Дробна змалоць і прасеяць нейкую колькасць мукі. *Н. мукі на пірагі.*

**НАПЫ́ШЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Празмерна важны, ганарысты (пра чалавека). *Н. выгляд.* **2.** Занадта ўрачысты, прыўзнята квяцісты. *Н. стыль.* ‖ *наз.* **напы́шлівасць**, -і, *ж.*

**НАПЭ́ЎНА**, *прысл.* **1.** Беспамылкова, з разлікам, без рызыкі. *Дзейнічаць н.* **2.** *у знач. пабочн. сл.* Мабыць, хутчэй за ўсё. *Н., тут адпачывалі турысты.*

**НАПЭ́ЦКАЦЦА** *гл.* пэцкацца.

**НАПЭ́ЦКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* (разм.). **1.** Нарабіць бруду, запэцкаць што-н. *Н. на стале.* **2.** *перан.* Зрабіць дрэн-

на, нядбайна. *Н. у сшытку.* ‖ *незак.* **напэ́цкваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАПЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* напець. **2.** *што* і *без дап.* Ціха, напаўголасу пець. *Н. песню.*

**НАПЯРЭ́ДАДНІ**, *прысл.* і *прыназ.* **1.** *прысл.* Непасрэдна перад якім-н. днём, перад якой-н. падзеяй. *Н. выпаў першы снег.* **2.** *чаго, прыназ. з Р.* Перад чым-н. *Сустрэцца н. Новага года. Н. выбараў.*

**НАПЯРЭ́ЙМЫ**, *прысл.* і *прыназ.* (разм.). **1.** *прысл.* З мэтай перахапіць каго-, што-н., рухаючыся яму насустрач; наперарэз. *Бегчы н.* **2.** *прыназ. з Д.* Ужыв. для ўказання на асобу або прадмет, якім імкнуцца зайсці наперад, каб перахапіць іх. *Бегчы н. уцекачу.*

**НАПЯ́ЦЦА**, -пну́ся, -пне́шся, -пне́цца; -пнёмся, -пняце́ся, -пну́цца; -пя́ўся, -пя́лася; -пні́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць тугім, нацягнуцца. *Трос напяўся. Мускулы напяліся.* **2.** Сабраўшы ўсе фізічныя сілы, напружыцца. ‖ *незак.* **напіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**НАПЯ́ЦЬ**, -пну́, -пне́ш, -пне́; -пнём, -пняце́, -пну́ць; напя́ў, -пя́ла; -пні́; -пя́ты; *зак., што.* **1.** Нацягнуўшы, зрабіць тугім або туга замацаваць. *Н. лейцы. Н. струны на скрыпцы.* **2.** Надзець што-н., нацягнуць (разм.). *Н. боты.* ‖ *незак.* **напіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **напіна́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**НАПЯЧЫ́**, -пяку́, -пячэ́ш, -пячэ́; -пячо́м, -печаце́, -пяку́ць; напёк, -пякла́, -кло́; -пячы́; -пе́чаны; *зак.* **1.** *чаго.* Спячы нейкую колькасць. *Н. пірагоў.* **2.** *што.* Моцна нагрэць, перагрэць на сонцы, печы і пад. (разм.). *Н. ногі на пяску.* **3.** *каго-што.* Апячы крапівой; наджаліць (пра насякомых; разм.). ‖ *незак.* **напяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАПЯЧЫ́СЯ**, -пяку́ся, -пячэ́шся, -пячэ́цца; -пячо́мся, -печаце́ся, -пяку́цца; напёкся, -пякла́ся, -кло́ся; -пячы́ся; *зак.* (разм.). Моцна нагрэцца, перагрэцца на сонцы, печы і пад. *Н. на пляжы.*

**НАРА́**, -ы́, *мн.* но́ры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) нары́, нор, *ж.* Паглыбленне пад зямлёй, часта з некалькімі хадамі, якое вырыта жывёлінай і служыць ёй жыллём. *Барсукова н.* ‖ *памянш.* **но́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.*

**НАРАБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што* і *чаго.* Рабуючы, прысвоіць; награбіць многае. *Н. каштоўнасцей.*

**НАРАБІ́ЦЦА**, -раблю́ся, -ро́бішся, -ро́біцца; *зак.* **1.** Парабіць уволю; напрацавацца. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Здарыцца, адбыцца (разм.). *Нарабілася бяды.*

**НАРАБІ́ЦЬ**, -раблю́, -ро́біш, -ро́біць; -ро́блены; *зак., чаго.* **1.** Зрабіць вялікую колькасць чаго-н. *Н. фотаздымкаў.* **2.** Зрабіць, учыніць што-н. або многа чаго-н. (звычайна дрэннага, непрыемнага і пад.). *Н. глупства. Н. памылак.* **3.** Зрабіць вязаннем нейкую колькасць (разм.). *Н. панчох, шкарпэтак.* ‖ *незак.* **нарабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 1 і 3 знач.).

**НАРАВІ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** З норавам (звычайна пра коней). *Н. конь.* **2.** Натурысты, капрызны (пра чалавека). *Чалавек з наравістым характарам.* ‖ *наз.* **нараві́стасць**, -і, *ж.*

**НАРАВІ́ЦЦА**, -раўлю́ся, -ро́вішся, -ро́віцца; *незак.* Упарціцца, паказваць свой нораў. *Конь часта наравіўся.*

**НАРАВІ́ЦЬ**, -раўлю́, -ро́віш, -ро́віць; *незак.* **1.** Дагаджаць. *Госцю трэба н.* **2.** *з інф.* і *злуч.* «каб». Імкнуцца, старацца. *Конь увесь час наравіў сарвацца з месца.*

**НАРА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вуснае або пісьмовае распараджэнне на выкананне якой-н. работы; дакумент на выдачу або атрыманне чаго-н. *Атрымаць н. Н. на лес. Н. на машыну.* **2.** Якая-н. работа або заданне для ваеннаслужачых (спец.). *Знаходзіцца ў нарадзе. Н. на кухню.* **3.** Група ваеннаслужачых, якія выконваюць такое заданне (спец.). *Гарнізонны н. Н. міліцыі.* ‖ *прым.* **нара́дны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**НАРА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ра́д, *ж.* **1.** Афіцыйнае пасяджэнне для абмеркавання якіх-н. спецыяльных пытанняў. *Вытворчая н.* **2.** Сумеснае абмеркаванне якога-н. пытання. *Сямейная н.*

**НАРАДАВО́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* (гіст.). Член тайнай палітычнай арганізацыі «Народная воля». ‖ *прым.* **нарадаво́льскі**, -ая, -ае.

**НАРАДАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Сістэма навук, якія вывучаюць культуру і быт народаў; этнаграфія. ‖ *прым.* **нарадазна́ўчы**, -ая, -ае.

**НАРАДЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* нарадзіць, нарадзіцца. **2.** Дзень, дата, калі хто-н. нарадзіўся, а таксама святкаванне гэтага дня. *Запрасіць на дзень нараджэння.*

**НАРАДЗІ́ЦЦА**, -раджу́ся, -ро́дзішся, -ро́дзіцца; *зак.* **1.** З'явіцца на свет (пра чалавека, жывёл). *Нарадзіўся сын. Н. ў вёсцы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* З'явіцца; узнікнуць, пачацца. *Нарадзілася ідэя.* ◊ **Нарадзіцца ў сарочцы** — быць удачлівым, шчаслівым ва ўсім. ‖ *незак.* **нараджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *наз.* **нараджэ́нне**, -я, *н.*

**НАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Даць жыццё каму-н., пусціць на свет. *Н. сына.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., што.* Даць пачатак чаму-н., стварыць што-н., быць прычынай з'яўлення чаго-н. *Крыўда нарадзіла злосць.* ◊ **У чым маці нарадзіла** (разм.) — зусім голы. ‖ *незак.* **нараджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **нараджэ́нне**, -я, *н.*

**НАРА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік, які выпісвае нарады на якую-н. работу. ‖ *ж.* **нара́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**НАРАЗА́ЦЬ** *гл.* нарэзаць.

**НАРАЗНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* нарэзаць. **2.** Які мае на сабе нарэзы, нарэзку. *Н. канал ствала.*

**НАРА́ІЦЬ**, -а́ю, -а́іш, -а́іць; -а́й; *зак.* **1.** *каго-што.* Параіць, парэкамендаваць для якой-н. мэты. *Н. добрага печніка.* **2.** *з інф., каму* і *без дап.* Даць параду зрабіць што-н.

**НАРАКА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* наракаць. **2.** звычайна *мн.* -і, -яў. Дакор, папрокі. *Матчыны нараканні.*

**НАРАКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., на каго-што, з дадан.* і *без дап.* Выказваць крыўду на каго-, што-н., незадавальненне кім-, чым-н. ‖ *наз.* **нарака́нне**, -я, *н.*

**НАРАСПА́ШКУ**, *прысл.* Тое, што і *нарасхрыст.*

**НАРАСПЕ́Ў**, *прысл.* Працягла, расцягваючы словы. *Гаварыць н.*

**НА́РАСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* і **НА́РАСЦЬ**, -і, -ей і -яў, *ж.* **1.** Ненармальнае патаўшчэнне на якой-н. частцы арганізма. *Н. на ствале дрэва.* **2.** Тое, што наогул нарасло дзе-н., на чым-н. *Лёдавыя нарасты.*

**НАРАСХВА́Т**, *прысл.* Наперабой, стараючыся перахапіць у іншых. *Керамічныя вырабы купляюць н.*

**НАРАСЦІ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -расце́; нарóс, -расла́, -сло́; *зак.* **1.** Вырасці ў нейкай колькасці. *Нарасло хмызняку.* **2.** Вырасці на паверхні чаго-н. *На страсе нарасло моху.* **3.** Сабрацца, павялічыцца (аб працэнтах, грошах і пад.). *Нараслі працэнты за год.* ‖ *незак.* **нараста́ць**, -а́е; *наз.* **нараста́нне**, -я, *н.*

**НАРАСЦІ́ЦЬ**, -рашчу́, -ро́сціш, -ро́сціць; *зак.* **1.** *чаго.* Вырасціць у нейкай колькасці. *Н. кветак.* **2.** *што* і *чаго.* Вырасціць што-н. на чым-н. *Н. мускулы.* **3.** *што.* Павялічыць у памерах, дабаўляючы што-н. *Н. сцяну.* ‖ *незак.* **наро́шчваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **наро́шчванне**, -я, *н.* і **нарашчэ́нне**, -я, *н.* (да 2 і 3 знач.).

**НА́РАСЦЬ** *гл.* нараст.

**НАРАЎНЕ́** *і* **НАРО́ЎНІ**, *прысл.* **1.** На адной лініі, на адной вышыні, глыбіні і пад., з роўнай сілай, скорасцю і г.д. *Спартсмены беглі н.* **2.** *у знач. прыназ.* Аднолькава з кім-, чым-н., на роўных умовах, правах. *Жанчыны працуюць н. з мужчынамі.*

**НА́РАЧНЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Чалавек, які спецыяльна пасылаецца з якім-н. спешным даручэннем. *Пасласць пісьмо нарачным.*

**НАРАЧО́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Аб'яўлены, прызначаны быць такім. *Н. брат.* **2.** *у знач. наз.* **нарачо́ны**, -ага, *м.*; **нарачо́ная**, -ай, *ж.*, *мн.* -ыя, -ых. Жаніх, нявеста. *Усе лічылі іх нарачонымі.*

**НАРВА́ЦЬ**[1], -ву́, -ве́ш, -ве́; -вём, -вяце́, -ву́ць; -ві́; -ва́ны; *зак., чаго.* **1.** Сарваць нейкую колькасць чаго-н. *Н. кветак. Н. букет.* **2.** Парваць нейкую колькасць чаго-н. *Н. паперы.* **3.** Нацерабіць нейкую колькасць (лёну, канопляў і пад.). *Н. ільну.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*) і *што.* Нагнаць (пра вецер; разм.). *Вецер нарваў снегу.* ‖ *незак.* **нарыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—3 знач.).

**НАРВА́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -рве́; *зак.* Апухнуць і нагнаіцца. *Палец нарваў.* ‖ *незак.* **нарыва́ць**, -а́е.

**НАРВЕ́ЖЦЫ**, -аў, *адз.* -жац, -жца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Нарвегіі. ‖ *ж.* **нарве́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак. ‖ *прым.* **нарве́жскі**, -ая, -ае.

**НАРЗА́Н**, -у, *м.* Вуглякіслая мінеральная лячэбная вада. ‖ *прым.* **нарза́нны**, -ая, -ае. *Нарзанныя ванны.*

**НАРКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да наркотыкаў, напр.: *наркабізнес, наркамафія*; 2) які мае адносіны да наркозу, напр.: *наркагіпноз, наркапсіхатэрапія, наркаэлектрашок.*

**НАРКАБІ́ЗНЕС**, -у, *м.* Бізнес, які прыносіць даход ад гандлю наркотыкамі. *Барацьба з наркабізнесам.*

**НАРКАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які займаецца вывучэннем і лячэннем хвароб, выкліканых алкагалізмам, наркаманіяй і таксікаманіяй. ‖ *прым.* **наркалагі́чны**, -ая, -ае. *Н. дыспансер. Н. кабінет.*

**НАРКАМА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які мае моцную, хваравітую цягу да наркотыкаў. ‖ *ж.* **наркама́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **наркама́нскі**, -ая, -ае.

**НАРКАМА́НІЯ**, -і, *ж.* Хваравітая, часам неадольная цяга да сістэматычнага ўжывання наркотыкаў, што прыводзіць да цяжкіх парушэнняў фізічных і псіхічных функцый арганізма.

**НАРКАМА́ФІЯ**, -і, *ж.* Мафія, звязаная з гандлем наркотыкамі.

**НАРКО́З**, -у, *м.* Агульнае абязбольванне, своеасаблівы стан штучнага сну з поўнай або частковай стратай прытомнасці і болевай адчувальнасці. *Аперацыя пад наркозам.* ‖ *прым.* **нарко́зны**, -ая, -ае.

**НАРКО́ЛАГ**, -і, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач — спецыяліст па наркалогіі.

**НАРКО́ТЫКІ**, -аў, *адз.* нарко́тык, -у, *м.* Моцнадзейнае рэчыва (расліннага і сінтэтычнага паходжання), якое выклікае ўзбуджэнне, галюцынацыі, санлівасць і паралізуе дзейнасць цэнтральнай нервовай сістэмы. ‖ *прым.* **наркаты́чны**, -ая, -ае.

**НАРМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *незак., што.* Узводзіць, устанаўліваць нормы. *Н. заработную плату.* ‖ *наз.* **нармава́нне**, -я, *н.*

**НАРМАЛІЗАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -зу́ецца; *зак.* і *незак.* Прыйсці (прыходзіць) у норму, зрабіцца (рабіцца) нармальным. *Адносіны нармалізаваліся.*

**НАРМАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Вызначыць (вызначаць) нормы, падпарадкаваць (падпарадкоўваць) норме. *Н. правапіс. Н. вымаўленне.* **2.** Наблізіць (набліжаць) да нормы. *Н. міжнародныя адносіны.* ‖ *наз.* **нармаліза́цыя**, -і, *ж.*

**НАРМА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адпавядае нормам, звычайны. *Нармальная тэмпература цела. Нармальная вага.* **2.** Псіхічна здаровы. ‖ *наз.* **нарма́льнасць**, -і, *ж.*

**НАРМА́НЫ**, -аў, *адз.* нарма́н, -а, *м.* (гіст.). Агульная назва плямён, якія сялялі Скандынавію ў 8—11 стст. ‖ *прым.* **нарма́нскі**, -ая, -ае.

**НАРМАТЫ́Ў**, -тыву, *мн.* -тывы, -тываў, *м.* (спец.). Эканамічны або тэхнічны паказчык норм, у адпаведнасці з якімі выконваецца работа. *Нарматывы вытворчай працы.* ‖ *прым.* **нарматы́ўны**, -ая, -ае.

**НАРМАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* нарматыў. **2.** Які вызначае норму, стандарты, правілы. *Нарматыўная граматыка.* ‖ *наз.* **нарматы́ўнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**НАРМІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што.* Тое, што і *нармаваць.* ‖ *наз.* **нарміръва́нне**, -я, *н.* і **нарміро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **нарміро́вачны**, -ая, -ае.

**НАРМІРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па нарміроўцы чаго-н. ‖ *ж.* **нарміро́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**НАРО́Г**, -а, *М* -ро́зе, *мн.* -і, -аў, *м.* Частка плуга, якая падразае пласт зямлі знізу і перадае яго на адвал. ‖ *прым.* **наро́жны**, -ая, -ае.

**НАРО́Д**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Усё насельніцтва пэўнай дзяржавы, жыхары краіны. *Н. Беларусі.* **2.** -а. Працоўная маса насельніцтва той ці іншай краіны. *Працоўны н. Выхадцы з народа.* **3.** -а. Розныя формы гістарычных супольнасцей (племя, народнасць, нацыя). *Беларускі н.* **4.** -у, толькі *адз.* Людзі. *На мітынг прыйшло многа народу.* ‖ *прым.* **наро́дны**, -ая, -ае. *Народная творчасць.*

**НАРОДАНАСЕ́ЛЬНІЦТВА**, -а, *н.* Насельніцтва краіны, якой-н. тэрыторыі.

**НАРОДАЎЛА́ДДЗЕ**, -я, *н.* Улада народа, дэмакратыя. *Органы народаўладдзя.*

**НАРОДНАГАСПАДА́РЧЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да народнай гаспадаркі. *Прадпрыемства народнагаспадарчага значэння.*

**НАРО́ДНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* народны. **2.** Устойлівая супольнасць людзей, заснаваная на агульнасці мовы, тэрыторыі, эканамічнага жыцця, якая папярэднічае нацыі. *Паўночныя народнасці.* **3.** Нацыянальная, народная (у 3 знач.) самабытнасць. *Н. паэзіі Янкі Купалы.*

**НАРО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Паслядоўнік народніцтва. ‖ *ж.* **наро́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **наро́дніцкі**, -ая, -ае.

**НАРО́ДНІЦТВА**, -а, *н.* Грамадска-палітычны рух у Расіі ў 2-й палавіне 19 ст., які ідэалізаваў сялянскую абшчыну і імкнуўся цераз яе ажыццявіць ідэі сялянскай дэмакратыі і пераходу да сацыялізму, мінуючы капіталізм. ‖ *прым.* **наро́дніцкі**, -ая, -ае.

**НАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* народ. **2.** Які належыць усяму народу, дзяржаўны. *Народная гаспадарка* **3.** Цесна звязаны з народам, уласцівы духу народа, яго культуры, светапогляду. *Народная паэзія.* **4.** У складзе некаторых назваў устаноў, арганізацый, пасад. *Н. суд. Н. кантроль.* **5.** У складзе ганаровых званняў, якія надаюцца дзеячам культуры. *Н. паэт. Н. мастак.* ‖ *наз.* **наро́днасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**НАРО́КАМ**, *прысл.* (разм.). **1.** Жартам, не ўсур'ёз. *Я гэта н. сказаў.* **2.** Наўмысна. *Стукнуць н.*

**НАРО́СХРЫСТ**, *прысл.* Расшпіліўшыся, расхінуўшы краі вопраткі. *Паліто н.* ◊ **Душа наросхрыст** — пра адкрытага, шчырага чалавека.

**НАРО́ЎНІ** *гл.* нараўне.

**НАРО́ШЧВАННЕ** *гл.* нарасціць.

**НАРО́ШЧВАЦЬ** *гл.* нарасціць.

**НА́РТЫ**, -аў, *адз.* на́рта, -ы, *ДМ* -рце, *ж.* Доўгія, вузкія сані ў народаў Поўначы для язды на сабаках або аленях. ‖ *прым.* **на́ртавы**, -ая, -ае. *Н. шлях.*

**НАРУБІ́ЦЬ**, -рублю́, -ру́біш, -ру́біць; -ру́блены; *зак., чаго* (спец.). Вырубіць, здабыць у шахце (пра каменны вугаль). *Н. вугалю.*

**НАРУКА́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чахол, які надзяваецца зверху рукавоў сарочкі, пінжака (да локцяў) для аховы іх ад забруджвання, зносу ў час работы.

**НАРУКА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца на рукаве. *Н. знак. Нарукаўная павязка.*

**НА́РУКУ**, *прысл.* (разм.). Выгадна, зручна, дарэчы. *Гэта яму н.*

**НАРУМЯ́НІЦЦА** *гл.* румяніцца.

**НАРУМЯ́НІЦЬ** *гл.* румяніць.

**НАРУ́ЧНІКІ**, -аў, *адз.* -нік, -а, *м.* Металічныя кольцы, злучаныя ланцужком, якія надзяваюцца на рукі злачынцам, зняволеным; кайданкі.

**НАРУ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які надзяваецца на руку, носіцца на руцэ. *Н. гадзіннік.*

**НАРЦЫ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Шматгадовая цыбульная расліна сямейства амарылісавых з белымі або жоўтымі кветкамі. ‖ *прым.* **нарцы́савы**, -ая, -ае.

**НА́РЫ**, -аў. Насціл з дошак, прызначаны для спання, які знаходзіцца на пэўнай вышыні над падлогай або зямлёй. *Турэмныя н. Двух'ярусныя н.*

**НАРЫВА́ЦЬ**[1] *гл.* нарваць[1].

**НАРЫВА́ЦЬ**[2] *гл.* нарваць[2].

**НА́РЫС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Невялікі літаратурны твор, кароткае апісанне жыццёвых фактаў. *Біяграфічны н. Ваенны н.* **2.** Агульны выклад якога-н. пытання. *Нарысы па дыялекталогіі.* ‖ *прым.* **на́рысавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**НАРЫСАВА́ЦЬ** *гл.* рысаваць.

**НАРЫСІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пісьменнік, журналіст, які піша нарысы (у 1 знач.). ‖ *ж.* **нарысі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **нарысі́сцкі**, -ая, -ае.

**НАРЫ́Ў**, -рыва, *мн.* -рывы, -рываў, *м.* Гнойная пухліна на якой-н. тканцы арганізма. *Гнойны н.* ‖ *прым.* **нары́ўны**, -ая, -ае. *Нарыўная паверхня.*

**НАРЫЎНЫ́**, -а́я, -о́е. Які прызначаны для лячэння нарыва. *Н. пластыр.*

**НАРЫХТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* **1.** *чаго.* Назапасіць у нейкай колькасці. *Н. сена на зіму.* **2.** *што.* Падрыхтаваць; прывесці ў гатоўнасць. *Н.*

*гранаты.* **3.** *каго-што.* Сабраць, прыгатаваць усё патрэбнае (разм.). *Н. экспедыцыю.* ‖ *незак.* **нарыхто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **нарыхто́ўка**, -і, *ДМ* -тоўцы, *ж.* (да 1 знач.).

**НАРЫХТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -тоўцы, *ж.* **1.** *гл.* нарыхтаваць. **2.** Планавая здача сельскагаспадарчых прадуктаў дзяржаве (разм.). *Здаць нарыхтоўку.*

**НАРЫХТО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца нарыхтоўкамі. ‖ *ж.* **нарыхто́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **нарыхто́ўшчыцкі**, -ая, -ае.

**НАРЫ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -рые; -рыты; *зак., чаго.* Нарабіць паглыбленняў у зямлі. *Нарылі свінні ям.*

**НАРЭ́З**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Вузкае паглыбленне ў выглядзе канаўкі, якое робіцца рэжучым інструментам на чым-н. **2.** -а. Участак зямлі, адведзены каму-н. для часовага карыстання (гіст.). *Н. зямлі.*

**НАРЭ́ЗАЦЦА**, -рэ́жуся, -рэ́жашся, -рэ́жацца; -рэ́жся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). З'явіцца на дзяснах (пра зубы). *У дзіцяці нарэзаліся зубы.* **2.** Напіцца дап'яна (разм.). *Нарэзаўся, што сцежкі не бачыць.*

**НАРЭ́ЗАЦЬ**, -рэ́жу, -рэ́жаш, -рэ́жа; -рэ́ж; -рэ́заны; *зак.* **1.** *чаго.* Разрэзаць чым-н. вострым на часткі. *Н. хлеба. Н. сала.* **2.** *каго-чаго.* Зрэзаўшы або разрэзаўшы, нагатаваць у нейкай колькасці. *Н. дроў.* **3.** Зарэзаць у нейкай колькасці. *Н. курэй.* **4.** *што* і *чаго.* Падзяліць шляхам межавання або выдзеліць у час межавання. *Н. зямлі.* **5.** *што.* Зрабіць нарэзы. *Н. гайку.* **6.** *што.* Падрыхтаваць участак для выемкі ў шахце (спец.). *Н. лаву.* **7.** *што.* Нарабіць зубцоў на піле, назубіць. **8.** *што.* Намуляць чым-н. *Н. плячо сумкай.* ‖ *незак.* **нараза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1, 4—8 знач.) *і* **нарэ́зваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1, 4—8 знач.). ‖ *наз.* **нарэ́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 4—7 знач.). ‖ *прым.* **наразны́**, -а́я, -о́е (да 4—7 знач.).

**НАРЭ́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* **1.** *гл.* нарэзаць. **2.** Вінтавая разьба, якая робіцца звонку або ўнутры прадмета. *Вінтавая н.*

**НАРЭ́ШЦЕ**, *прысл.* **1.** Пасля ўсяго, напаследак. *Здагадацца н.* **2.** *у знач. далучальнага злуч.* (часта ў спалучэнні са злучнікам «і»). Ужыв. для далучэння асобнага слова або цэлага сказа. *Ехалі, ехалі, н. даехалі.* **3.** *у знач. пабочн. сл.* Паказвае на завяршэнне працэсу, дзеяння, з'явы. *Н., выйшаў з лесу на палянку.* **4.** *у знач. пабочн. сл.* Паказвае, што мера цярпення, чакання і пад. скончылася, або падкрэслівае што-н. *Сціхнеце вы, н.*

**НАСАБА́ЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* (разм., груб., фам.). Налаўчыцца, прывыкнуць што-н. рабіць. *За першы год насабачыўся ўсё рабіць.*

**НАСАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* нос. **2.** Які выгаворваецца ў нос. *Насавое вымаўленне.* **3.** Прызначаны для носа. *Насавая хустачка.* **4.** Які знаходзіцца на носе судна, самалёта і інш. *Насавая частка палубы.*

**НАСАГЛО́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Верхняя частка глоткі, якая ўтварае поласць ззаду носа, што пераходзіць у сярэднюю частку глоткі. ‖ *прым.* **насагло́тачны**, -ая, -ае.

**НАСАДЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-чаго.* **1.** Тое, што і *насадзіць*[1]. **2.** Пабоямі нарабіць сінякоў, гузоў і пад. (разм.). *Н. сінякоў.*

**НАСА́ДЖВАННЕ** *гл.* насадзіць[2].

**НАСА́ДЖВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* **1.** *гл.* насадзіць[1]. **2.** *перан.* Пашыраць, распаўсюджваць, укараняць. *Н. чужыя традыцыі.*

**НАСА́ДЖВАЦЬ**[2] *гл.* насадзіць[2].

**НАСАДЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* насадзіць[1]. **2.** толькі *мн.* -і, -яў. Пасаджаныя расліны, дрэвы. *Зялёныя насаджэнні. Лесаахоўныя насаджэнні.*

**НАСАДЗІ́ЦЬ**[1], -саджу́, -са́дзіш, -са́дзіць; -са́джаны; *зак.* **1.** *чаго, што.* Зрабіць пасадку (дрэў, раслін) у нейкай колькасці. *Н. парэчак. Н. парк.* **2.** *каго (што).* Змясціць куды-н. у якой-н. колькасці (разм.). *Н. поўную машыну людзей.* ‖ *незак.* **наса́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **насаджэ́нне**, -я, *н.*

**НАСАДЗІ́ЦЬ**[2], -саджу́, -са́дзіш, -са́дзіць; *зак., каго-што.* **1.** Моцна, шчыльна надзець на што-н. *Н. сякеру на тапарышча. Н. чарвяка на кручок.* **2.** *перан.* Узбіўшыся на што-н. вострае, параніць (разм.). *Н. нагу на цвік.* ‖ *незак.* **наса́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **наса́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **наса́джванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**НАСА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** *гл.* насадзіць[2]. **2.** Прынада для рыб, якая насаджваецца на кручок. *Рыба з'ела насадку.* **3.** Частка прыбора або інструмента, якая надзяваецца на што-н. *Канічная н. Н. чыгуннай муфты.*

**НАСАЛАДЗІ́ЦЬ**, -ладжу́, -ло́дзіш, -ло́дзіць; -ло́джаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць салодкім, пасаладзіць. *Н. каву.* **2.** Прарасціць зерне ў цяпле і вільгаці для атрымання соладу. **3.** Давесці цеста да стану лёгкага цукровага браджэння. ‖ *незак.* **насало́джваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**НАСА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *зак., што* (разм.). Намазаць, нацерці чым-н. тлустым. *Н. валасы.* ‖ *незак.* **наса́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАСАЛІ́ЦЬ**, -салю́, -со́ліш, -со́ліць; -со́лены; *зак.* **1.** *чаго.* Загатаваць пры дапамозе салення. *Н. грыбоў на зіму.* **2.** *што.* Тое, што і *перасаліць.* **3.** *перан., каму* і *без дап.* Нашкодзіць каму-н., нарабіць непрыемнасцей (разм.). *Н. суседу.* ‖ *незак.* **насо́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАСАНДА́ЛІЦЬ** *гл.* сандаліць.

**НАСАРО́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вялікая млекакормячая траваедная жывёліна паўднёвых краін з адным або двума рагамі на пярэдняй частцы морды. *Афрыканскі н. Белы н.* ‖ *прым.* **насаро́гавы**, -ая, -ае.

**НАСА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** З вялікім носам. *Н. твар.* **2.** З доўгай, вялікай выступаючай часткай. *Насатая лодка.*

**НАСА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** Чалавек з вялікім носам. **2.** Птушка з доўгай дзюбай або жывёліна з вялікім носам.

**НАСВАВО́ЛІЦЬ** *гл.* сваволіць.

**НАСВАВО́ЛЬНІЧАЦЬ** *гл.* свавольнічаць.

**НАСВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -ва́рышся, -ва́рыцца; *зак., на каго* і *без дап.* Выказаць рэзкімі словамі сваё нездавальненне кім-н.

**НАСВІДРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., чаго.* Нарабіць свердлам нейкую колькасць адтулін. *Н. дзірак.*

**НАСВІНЯ́ЧЫЦЬ** *гл.* свінячыць.

**НАСВІ́СТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Свістам перадаваць якую-н. мелодыю. *Н. вальс.* ‖ *наз.* **насві́стванне**, -я, *н.*

**НАСЕ́ВАК**, -се́ўку, *м.* (разм.). **1.** Насенне, прызначанае для пасеву. *Грузавік вазіў н.* **2.** Наогул усё тое, што сеецца, ляціць, падае зверху. *Н. з шышак.*

**НАСЕ́ДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць *і* **НАСЯДЗЕ́ЦЬ**, -сяджу́, -сядзі́ш, -сядзі́ць; -сядзі́м, -седзіце́, -сядзя́ць; -се́джаны; *зак., што.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра птушак: сагрэць яйкі цяплом свайго цела, выседжваючы птушанят. **2.** Нажыць якую-н. хваробу ў выніку працяглага сядзення (разм.). *Н. гемарой.* ‖ *незак.* **насе́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАСЕ́КЧЫ** *гл.* насячы.

**НАСЕ́ЛЕНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Шчыльнасць насельніцтва. *Н. гарадоў.* **2.** Наяўнасць насельніцтва. *Слабая н.*

**НАСЕ́ЛЕНЫ**, -ая, -ае. Які мае насельніцтва; заселены. *Н. востраў.* ○ **Населены пункт** — агульная назва месцаў, дзе жывуць людзі (горад, вёска і пад.).

**НАСЕ́ЛЬНІЦТВА**, -а, *н.* Жыхары якога-н. месца (краіны, горада і пад.). *Н. раёна. Перапіс насельніцтва.*

**НАСЕ́НІСТЫ**, -ая, -ае. Які мае многа насення. *Н. агурок.*

**НАСЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Зачатак вышэйшых раслін, які складаецца з зародка і абалонкі; семя, зерне. *Н. развіваецца з семязавязі.* **2.** *зб.* Зярняты раслін, прызначаныя для пасеву. *Н. жыта.* **3.** *перан.* Пачатак чаго-н.; тое, што мае ўплыў, уздзеянне. *Пасеяць у сэрцы добрае н.* **4.** *перан.* Нашчадкі каго-н. (разм.). ‖ *прым.* **насе́нны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Насенная бульба.*

**НАСЕННЕ...** (а таксама **насення...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да насення, напр.: *насеннеачышчальны, насеннесушылка, насеннесушыльны.*

**НАСЕ́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). **1.** Расліна або яе плод, пакінуты на насенне. *Агурок-н.* **2.** Участак, прызначаны для вырошчвання раслін на насенне (спец.). ‖ *ж.* **насе́нка**, -і, *ДМ* -нцы (да 1 знач.; разм.). *Бульба-н.*

**НАСЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* насенне. **2.** Прызначаны для пасеву. *Насенная пшаніца.* **3.** Адведзены для вырошчвання насенных раслін. *Н. ўчастак.*

**НАСЕННЯ...** (*гл.* **насенне...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «насенне...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *насеннявод, насенняводства, насенняносец, насенняносны, насеннясховішча.*

**НАСЕННЯВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па насенняводстве.

**НАСЕННЯВО́ДСТВА**, -а, *н.* Галіна раслінаводства, якая займаецца развядзеннем насенных раслін. ‖ *прым.* **насенняво́дчы**, -ая, -ае.

**НАСЕ́СЦІ**, -ся́ду, -ся́дзеш, -ся́дзе; насе́ў, -се́ла; нася́дзь; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сесці куды-н., на што-н. у вялікай колькасці. *У вагон насела многа людзей.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Асядаючы на чым-н., пакрыць сабою. *Насеў пыл.* **3.** *на каго (што).* Напаўшы, наваліцца з сілай. *Удвух населі на аднаго.* **4.** *перан., на каго (што).* Звярнуцца з настойлівымі просьбамі, патрабаваннямі (разм.). ‖ *незак.* **насяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАСЕ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* **1.** *гл.* насячы. **2.** Зарубка, нарэзка, узор на металічнай (або іншай) паверхні. *Шабля з залатой насечкай.*

**НАСЕ́ЯЦЬ**, -се́ю, -се́еш, -се́е; -се́й; насе́яны; *зак., чаго.* **1.** Пасеяць у нейкай колькасці. *Н. жыта.* **2.** Прасеяць нейкую колькасць. *Н. мукі.* ‖ *незак.* **насе́йваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **насява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАСЁРБАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Сёрбаючы, наесціся. *Н. заціркі.*

**НАСІ́ЛКІ**, -лак. Прыстасаванне для пераноскі грузаў або людзей. *Санітарныя н.*

**НАСІ́ЛЛЕ**, -я, *н.* **1.** Прымяненне фізічнай сілы да каго-н. *Грубае н. Сляды насілля на целе.* **2.** Прымусовае ўздзеянне на каго-н. *Н. над асобай.* **3.** Прыцясненне, злоўжыванне сваёй уладай. *Барацьба з насіллем.*

**НАСІ́ЛУ**, *прысл.* З вялікімі цяжкасцямі, ледзь-ледзь. *Н. падняў мех бульбы.*

**НАСІ́ЛЫ**, -сіл. Дзве жэрдкі без насцілу для пераноскі сена ў копах.

**НАСІ́ЛЬНЫ**[1], -ая, -ае. Які прызначаецца для штодзённага нашэння (пра адзенне). *Насільная бялізна.*

**НАСІ́ЛЬНЫ**[2], -ая, -ае. Які ажыццяўляецца шляхам насілля. *Насільная смерць.*

**НАСІ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які носіць багаж на вакзалах, прыстанях і пад.

**НАСІНІ́ЦЬ**, -сіню́, -сі́ніш, -сі́ніць; -сі́нены; *зак., што.* Зрабіць сінім; густа падсініць. ‖ *незак.* **насі́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАСІ́ЦЦА**, нашу́ся, но́сішся, но́сіцца; *незак.* **1.** Шпарка перамяшчацца (бегаць, лятаць) у розных напрамках. *Ластаўкі насіліся над сажалкай. Н. па хаце.* **2.** Быць, знаходзіцца ў нашэнні. *Паліто доўга носіцца.* **3.** Празмерна захапляцца кім-, чым-н.; удзяляць шмат увагі чаму-н. (разм.). *Н. з ідэяй.* **4.** *перан.* Разносіцца, распаўсюджвацца (пра чуткі, гукі, пахі). *Над поплавам насіўся пах свежага сена.* ◊ **Насіцца ў паветры** — пра блізкі надыход чаго-н.

**НАСІ́ЦЬ**, нашу́, но́сіш, но́сіць; но́шаны; *незак.* **1.** *каго-што.* Тое, што і *несці*[1] (у 1 знач.), але абазначае дзеянне, якое пастаянна паўтараецца, адбываецца ў розных напрамках і ў розны час. *Н. бульбу ў склеп. Н. дзіця на руках.* **2.** *што.* Адзявацца пэўным чынам, надзяваць на сябе, а таксама мець на сабе. *Н. светлыя сукенкі. Н. акуляры. Н. бараду.* **3.** *што.* Трымаць, мець заўсёды пры сабе. *Н. пашпарт у кішэні.* **4.** *(1 і 2 ас. не ўжыв.), што.* Перамяшчаць з месца на месца сілай свайго руху (пра вецер, ваду і пад.). *Вецер носіць лісце.* **5.** *што.* Мець якое-н. імя, прозвішча, званне, тытул і пад. *Н. прозвішча мужа.* **6.** *(1 і 2 ас. не ўжыв.), што.* Мець адзнакі чаго-н., характарызавацца чым-н. *Спрэчка насіла востры характар.* **7.** *перан., што.* Утрымліваць у сабе; адчуваць што-н., думаць пра што-н. *Н. надзею на выздараўленне.* **8.** (звычайна ў спалучэнні са словамі «пад сэрцам»), *каго (што).* Быць цяжарнай. *Н. дзіця пад сэрцам.* **9.** *што.* Трымаць у нейкім становішчы. *Н. руку на павязцы.* **10.** *(1 і 2 ас. не ўжыв.), што.* Збіраць на кветках і дастаўляць у вулей (пра пчол). *Жывуць пчолкі і мядок носяць.* **11.** *перан. (1 і 2 ас. не ўжыв.), што.* Мець адзнакі, характэрныя рысы чаго-н., якога-н. часу. *Будынак носіць сляды грэчаскай архітэктуры.* **12.** *(1 і 2 ас. не ўжыв.), што.* Мець якую-н. прысвоеную назву, імя якога-н. дзеяча. *Мінскі педуніверсітэт носіць імя Максіма Танка.* **13.** *што.* Адлюстроўваць пэўны ўнутраны стан. *Бледны твар яго заўсёды насіў выраз разгубленасці.* ◊ **Да пары збан ваду носіць** (разм.) — усё мае свой час. **Дзе цябе (вас) бог носіць?** (разм., жарт.) — здзіўленне пры сустрэчы, калі доўга не бачыліся. **За плячамі не насіць** (разм.) — аб чым-н. такім, што не абцяжарвае. **Насіць на руках** *каго* (разм.) — надта песціць каго-н.; балаваць. ‖ *наз.* **нашэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.) *і* **но́ска**, -і, *ДМ* но́сцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**НАСКАКА́ЦЦА**, -скачу́ся, -ска́чашся, -ска́чацца; -скачы́ся; *зак.* (разм.). **1.** Стаміцца, скачучы цераз што-н. *Н. цераз канавы.* **2.** Уволю, многа паездзіць на кані. **3.** Многа патанцаваць. *Будуць танцы, наскачамся ўволю.*

**НАСКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Зроблены на скале (пра малюнкі, надпісы, якія адносяцца да старажытных эпох).

**НАСКАНДА́ЛІЦЬ** *гл.* скандаліць.

**НАСКА́РДЗІЦЦА** *гл.* скардзіцца.

**НАСКО́К**, -у, *м.* **1.** Імклівы напад, скачок з мэтай нападу. *Н. звера.* **2.** *перан.* Грубыя, беспадстаўныя нападкі, абвінавачанні супраць каго-н. *Адміністрацыйны н.* ◊ **З наскоку** — не падумаўшы як след, добра не разабраўшыся.

**НАСКО́КАМ**, *прысл.* **1.** З разгону, хутка; адразу. *Матэматыку н. не вывучыш.* **2.** Наездам, мімаходам. *Бываць на ўчастку н.*

**НАСКО́ЧЫЦЬ**, -ко́чу, -ко́чыш, -ко́чыць; *зак.* **1.** *на каго-што.* З ходу, з разгону наткнуцца на каго-, што-н. *Н. на плот.* **2.** *на каго (што).* Раптоўна накінуцца, напасці на каго-н. *Мядзведзь наскочыў на чалавека.* **3.** Нечакана з'явіцца (прыехаць, прыйсці і пад.). *Партызаны наскочылі з лесу.* **4.** *перан.* Раптоўна ўзнікнуць, пачацца і г.д. (пра вецер, мяцеліцу і пад.). *Наскочыў мароз.* **5.** Пра час, пару года: хутка надысці, настаць (разм.). *А тут і жніво наскочыла.*

**НАСКРО́ЗЬ**, *прысл.* **1.** Праз усю таўшчыню чаго-н. *Прамокнуць н.* **2.** *перан.* Поўнасцю, цалкам. *Лес н. апавіты змрокам.* ◊ **Бачыць наскрозь** — вельмі добра ведаць каго-н.

**НАСКРЭ́БЦІ**, -рабу́, -рабе́ш, -рабе́; -рабём, -рабяце́, -рабу́ць; -рэ́б, -рэ́бла *і* -рабла́, -рэ́бла *і* -рабло́; -рабі́; -рэ́бены; *зак., чаго.* **1.** Скрабучы, сабраць або набраць нейкую колькасць чаго-н. *Н. мукі.* **2.** Начысціць, скрабучы (пра моркву, буракі і пад.). *Н. бульбы на вячэру.* **3.** *перан.* З цяжкасцю сабраць, набраць (разм.). *Н. грошай.* ‖ *незак.* **наскраба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАСКУ́БЦІ**, -кубу́, -кубе́ш, -кубе́; -кубём, -кубяце́, -кубу́ць; -ку́б; -ку́бла; -кубі́; -ку́бены; *зак.* **1.** *чаго.* Скубучы, набраць або сабраць у нейкай колькасці. *Н. сена. Н. пер'я на падушку.* **2.** Нацягаць, натузаць (разм.). *Н. за валасы.* ‖ *незак.* **наскуба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **наску́бваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАСКУ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Від кароставага кляшча, які паразітуе на скуры жывёлы.

**НАСКУ́РНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца, праяўляецца на скуры. *Н. сып.*

**НАСЛАІ́ЦЬ**, -лаю́, -ло́іш, -ло́іць; -лаі́ў, -лаі́ла; -лаі́; -ло́ены; *зак., чаго.* **1.** Накласці слаямі. *Н. цеста.* **2.** Падзяліць на слаі нейкую колькасць чаго-н. ‖ *незак.* **насло́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **насло́йванне**, -я, *н.*

**НАСЛАННЁ**, -я́, *н.* **1.** Напасць, няшчасце. *Што за н.!* **2.** Тое, што паслана нібы «нячыстай сілай»; прывід.

**НАСЛА́ЦЬ**[1], нашлю́, нашле́ш, нашле́; нашлём, нашляце́, нашлю́ць; нашлі́; насла́ны; *зак.* **1.** *каго-чаго.* Прыслаць у нейкай колькасці. *Н. падарункаў.* **2.** *што і чаго.* Напусціць на каго-н. няшчасце, бяду і пад. *Н. хваробу.* ‖ *незак.* **насыла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАСЛА́ЦЬ**[2], -сцялю́, -сце́леш, -сце́ле; насцялі́; насла́ны; *зак.* **1.** *гл.* слаць[2]. **2.** *чаго.* Разаслаць, пакласці раўнамерным слоем на паверхні чаго-н. *Н. саломы на начлег.* **3.** *што.* Зрабіць, пабудаваць насціл (з дошак, бярвення і пад.). *Н. падлогу.* ‖ *незак.* **насціла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **насціла́нне**, -я, *н.*

**НАСЛЕ́ДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны; *зак. і незак., што.* **1.** Атрымаць (атрымліваць) у спадчыну якія-н.

(складу, слова) сілай голасу або павышэннем тону, а таксама значок, які паказвае такое вылучэнне. *Паставіць н. Лагічны н.* **5.** Патаўшчэнне штрыха пры пісьме пяром. *Пісаць з націскам.* **6.** *перан.* Вылучэнне чаго-н. у якасці асноўнага. *Зрабіць н. на выпуск тавараў першай неабходнасці.*

**НАЦІСКНЫ́**, -áя, -óе. **1.** Які служыць для націскання (спец.). *Н. болт.* **2.** Які прыводзіцца ў дзеянне націсканнем. *Міна націскнога дзеяння.* **3.** У мовазнаўстве: які стаіць пад націскам (пра склад, слова). *Націскныя галосныя.* ‖ *наз.* **націскáльнасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**НАЦІ́СНУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* Сабрацца, збіцца ў якой-н. колькасці. *У хату націснулася многа людзей.*

**НАЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *што, на што* і *без дап.* Стварыць ціск, налегчы цяжарам. *Н. на дзверы.* **2.** *чаго.* Выціскаючы, здабыць у якой-н. колькасці. *Н. соку з яблыкаў.* **3.** *на каго-што* і *без дап.* Зрабіць націск (у 3 знач.). *Н. на ворага з флангаў.* **4.** *перан., на каго-што* і *без дап.* Прымусіць або схіліць каго-н. да якога-н. дзеяння. *Н. на прафсаюз.* **5.** *перан., на што* і *без дап.* Энергічна ўзяцца за што-н. (разм.). *Н. на вучобу. Н. на працу.* **6.** *на што* і *без дап.* Вымаўляючы, зрабіць лагічны націск. **7.** *што.* Нацерці мазоль (мазалі; разм.). ‖ *незак.* **націскáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **націскáнне**, -я, *н.* (да 1, 2 і 6 знач.) *і* **нáціск**, -у, *м.* (да 1 знач.)

**НАЦКАВÁЦЬ**, -кую́, -куéш, -куé; -куём, -куяцé, -кую́ць; -кýй; -кавáны; *зак., каго на каго-што, з дадан.* і *без дап.* **1.** Падахвоціць да нападу. *Н. сабак на зайца.* **2.** *перан.* Падбухторыць да варожых дзеянняў супраць каго-н. (разм.). ‖ *незак.* **нацкóўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **нацкóўванне**, -я, *н.*

**НАЦЫ́ЗМ**, -у, *м.* Нямецкі фашызм. *Не дапусціць адраджэння нацызму.* ‖ *прым.* **нацы́сцкі**, -ая, -ае.

**НАЦЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік нацызму. ‖ *ж.* **нацы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **нацы́сцкі**, -ая, -ае.

**НÁЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Гістарычна ўстойлівая супольнасць людзей, якая ўтвараецца ў працэсе фарміравання агульнасці іх тэрыторыі, эканамічных сувязей, літаратурнай мовы, асаблівасцей культуры і духоўнага аблічча. *Права нацый на самавызначэнне.* **2.** У некаторых спалучэннях: краіна, дзяржава. *Арганізацыя Аб'яднаных Нацый.*

**НАЦЫЯНАЛ-...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову «нацыяналістычны», напр.: *нацыянал-ліберал, нацыянал-сацыяліст, нацыянал-патрыёт.*

**НАЦЫЯНАЛІЗАВÁЦЬ**, -зýю, -зýеш, -зýе; -зýй; -завáны; *зак.* і *незак., што.* Правесці (праводзіць) нацыяналізацыю чаго-н. *Н. фабрыкі і заводы.*

**НАЦЫЯНАЛІЗÁЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Перадача з прыватнай уласнасці ва ўласнасць дзяржавы зямлі, прамысловасці, транспарту, банкаў і пад. **2.** Арганізацыя чаго-н. на нацыянальнай аснове. *Н. школы.*

**НАЦЫЯНАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Ідэалогія і палітыка ў галіне нацыянальных адносін і культуры, якая зыходзіць з ідэй нацыянальнай перавагі пануючай нацыі і супрацьпастаўлення яе іншым нацыям. *Барацьба з нацыяналізмам.* **2.** Пачуццё нацыянальнага самазахавання, якое асабліва праяўляецца ў пэўныя гістарычныя перыяды, калі нацыі пагражае небяспека. ‖ *прым.* **нацыяналісты́чны**, -ая, -ае. *Нацыяналістычная палітыка. Нацыяналістычныя погляды.*

**НАЦЫЯНАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік нацыяналізму. ‖ *ж.* **нацыяналі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **нацыяналісты́чны**, -ая, -ае.

**НАЦЫЯНÁЛЬНАСЦЬ** -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Тое што і *нацыя* (у 1 знач.). **2.** Прыналежнасць да той ці іншай нацыі. *Беларус па нацыянальнасці. Людзі розных нацыянальнасцей.*

**НАЦЫЯНÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да нацыі, нацыянальнасці, звязаны з іх грамадскім жыццём. *Нацыянальнае пытанне. Н. рух.* **2.** Які ўласцівы дадзенай нацыі, выражае яе характар. *Нацыянальная культура. Н. тэатр. Н. касцюм.* **3.** Які належыць дадзенай краіне; дзяржаўны. *Н. гімн.*

**НАЦЭ́ДЖВАЦЦА** *гл.* нацадзіцца.

**НАЦЭ́ДЖВАЦЬ** *гл.* нацадзіць.

**НАЦЭ́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* **1.** Навесці зброю на цэль; прыцэліцца. **2.** *перан.* Падрыхтавацца, сабрацца што-н. зрабіць. *Н. ў паездку.* ‖ *незак.* **нацэ́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАЦЭ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* **1.** Навесці зброю на якую-н. цэль. *Н. вінтоўкі.* **2.** *перан., каго-што.* Накіраваць, даць пэўны напрамак дзеянням. *Н. калектыў на выкананне задання.* ‖ *незак.* **нацэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЦЭ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* нацаніць. **2.** Сума, на якую павышана цана на што-н. *Тавар з нацэнкай.*

**НАЦЭ́НЬВАЦЬ** *гл.* нацаніць.

**НАЦЮРМÓРТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Малюнак або карціна, на якіх паказаны неадушаўлёныя прадметы ў пэўных суадносінах (кветкі, садавіна, дзічына і пад.). ‖ *прым.* **нацюрмóртавы**, -ая, -ае.

**НАЦЯГÁЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* (разм.). **1.** Доўга, многа пахадзіць, паблукаць дзе-н. *Н. па лесе.* **2.** Стаміцца, цягаючы што-н. цяжкае. *Н. мяхоў.*

**НАЦЯГÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак.* **1.** *чаго.* Прынесці, прыцягнуць за некалькі прыёмаў. *Н. вады ў лазню.* **2.** *чаго.* Украсці за некалькі прыёмаў у якой-н. колькасці (разм.). **3.** *каго (што).* Пакараць, цягаючы за вушы, валасы (разм.).

**НАЦЯ́ГНУТЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* нацягнуць. **2.** *перан.* Які знаходзіцца ў стане напружання. *Нацягнутыя нервы.* **3.** *перан.* Пазбаўлены натуральнасці, недружалюбны. *Нацягнутыя адносіны.* ‖ *наз.* **наця́гнутасць**, -і, *ж.*

**НАЦЯГНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ця́гнецца; *зак.* **1.** Стаць тугім, напяцца. **2.** Прыйсці ў вялікай колькасці; сабрацца (разм.).

**НАЦЯГНУ́ЦЬ**, -цягнý, -ця́гнеш, -ця́гне; -цягні́; -ця́гнуты; *зак.* **1.** *што.* Расцягваючы, зрабіць тугім, напяць (або туга прымацаваць). *Н. трос.* **2.** *што.* Адзець (абуць) што-н. з цяжкасцю; накрыцца, нацягнуўшы на сябе што-н. *Н. боты. Н. коўдру.* **3.** *чаго.* Прыцягнуць, прынесці ў якой-н. колькасці. **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Настояцца; заварыцца. *Лякарства нацягнула ўжо.* **5.** *перан., што* і *без дап.* Давесці што-н. да нормы, да пэўнай ступені (пра выпрацоўку, выдаткі і пад.); завысіць што-н. (адзнаку, паказчык і пад.; разм.). *Н. ацэнку.* **6.** пераважна *безас., чаго* і *без дап.* Нагнаць ветрам; закрыць, завалачы чым-н. (разм.). *Нацягнула дыму ў хату.* ‖ *незак.* **нацяʹгваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **нацяʹгванне**, -я, *н.* (да 1, 3 і 5 знач.), **нацяʹжка**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **нацяжэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**НАЦЯ́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* **1.** *гл.* нацягнуць. **2.** Неправамернае дапушчэнне чаго-н. *Паставіць ацэнку з нацяжкай.*

**НАЦЯЖНЫ́**, -áя, -óе. **1.** Які надзяваецца шляхам нацягвання, нацяжкі. *Нацяжная шына.* **2.** Такі, які дзейнічае пры нацягванні, нацяжцы. *Н. канат.*

**НАЦЯЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* нацягнуць. **2.** Зрастанне скуры, пашкоджанай раненнем (спец.). *Першаснае н.*

**НАЦЯНЬКІ́**, *прысл.* Самым кароткім шляхам; наўпрост. *Сцежка вяла да поля н. Праўда ходзіць н., з ёй не размінешся* (з нар.).

**НАЦЯРПÉЦЦА**, -цярплю́ся, -цéрпішся, -цéрпіцца; -цярпі́ся; *зак.* Зведаць, перажыць шмат чаго-н. непрыемнага, цяжкага. *Н. страху.*

**НАЦЯРУ́ШВАЦЦА** *гл.* нацерушыцца.

**НАЦЯРУ́ШВАЦЬ** *гл.* нацерушыць.

**НАЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ** *гл.* нацерабіць.

**НАЦЯЧЫ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цячэ́, -цякýць; -цёк, -цяклá, -клó; *зак.* Паступова сцякаючы або прасочваючыся, сабрацца дзе-н. *У падвал нацякла вада.* ‖ *незак.* **нацякáць**, -áе.

**НАЧ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) начальнік, напр.: *начгас* (начальнік гаспадарчай часткі), *начдыў* (начальнік дывізіі), *начштаба* (начальнік штаба); 2) які начальствуе, напр., *начсастаў.*

**НАЧАВÁЦЬ**, -чýю, -чýеш, -чýе; -чýй; *незак.* Спаць дзе-н. усю ноч. *Н. на сене.* ‖ *зак.* **пераначавáць**, -чýю, -чýеш, -чýе; -чýй.

**НАЧАДЗІ́ЦЬ** *гл.* чадзіць.

**НАЧАКА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., чаго.* Чаканячы, вырабіць. *Н. сярэбраных манет.* ‖ *незак.* **начака́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая ўзначальвае што-н., кіруе чым-н. ‖ *ж.* **нача́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (разм.). ‖ *прым.* **нача́льніцкі**, -ая, -ае. *Н. загад.*

**НАЧА́ЛЬНІЦКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* начальнік. **2.** Поўны важнасці, строгасці; уладны. *Н. тон.*

**НАЧА́ЛЬСТВА**, -а, *н.* **1.** *зб.* Начальнікі, адміністрацыя. **2.** Начальнік (разм.). *Дзе знаходзіцца ваша н.?*

**НАЧА́ЛЬСТВАВАЦЬ**, -ствую, -ствуеш, -ствуе; -ствуй; *незак.* Кіраваць, быць начальнікам. ‖ *наз.* **нача́льстванне**, -я, *н.*

**НАЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак., што.* **1.** Накінуўшы, замацаваць; павесіць, навесіць. *Н. замок на дзверы.* **2.** Надзець на сябе, прымацаваўшы, прывесіўшы (разм.). *Н. бант.* ‖ *незак.* **начапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **начэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЧАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *зак.* У народных павер'ях: выклікаць што-н. чараваннем, вядзьмарствам.

**НА́ЧАРНА**, *прысл.* Папярэдне, без канчатковай апрацоўкі. *Напісаць н.*

**НАЧАРНІ́ЦЬ** *гл.* чарніць.

**НАЧАРТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **начартальная геаметрыя** — раздзел геаметрыі, які вывучае адлюстраванне прасторавых цел на плоскасці.

**НАЧАРЦІ́ЦЬ**, -чарчу́, -чэ́рціш, -чэ́рціць; -чэ́рчаны; *зак.* **1.** *гл.* чарціць. **2.** *што* і *чаго.* Чэрцячы, зрабіць якую-н. колькасць. *Н. картаў, планаў.* ‖ *незак.* **начэ́рчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЧАСА́ЦЬ**[1], -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чашы́; -часа́ны, *зак.* **1.** *чаго.* Атрымаць часаннем[1] у якой-н. колькасці. *Н. ільну.* **2.** *што.* Зачасаць валасы на лоб, вушы, скроні, а таксама ўзбіць валасы для прычоскі. ‖ *незак.* **начэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЧАСА́ЦЬ**[2], -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чашы́; -часа́ны; *зак., чаго.* Апрацаваць, нарыхтаваць часаннем[2] у якой-н. колькасці. *Н. жэрдак.* ‖ *незак.* **начэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЧА́ТКІ**, -аў. Першыя пачатковыя звесткі ў якой-н. галіне ведаў; пачаткі. *Н. арыфметыкі.*

**НАЧАЎПЦІ́**, -пу́, -пе́ш, -пе́; -пём, -пяце́, -пу́ць; -пі́; *зак., чаго* (разм., пагард.). Набалбатаць, нагаварыць рознай лухты.

**НАЧЛЕ́Г**, -у, *М* -лэ́зе, *м.* **1.** Начны адпачынак, а таксама месца для начнога сну, адпачынку. *Спыніцца на н.* **2.** Пасьба коней ноччу. ‖ *прым.* **начле́жны**, -ая, -ае.

**НАЧЛЕ́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* (разм.). Начлежны дом.

**НАЧЛЕ́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які часова начуе дзе-н. **2.** Той, хто пасе коней ноччу. ‖ *ж.* **начле́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**НАЧНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Няяркая лямпачка, якая запальваецца нанач. **2.** Чалавек, які працуе ноччу або доўга не кладзецца спаць (разм.). ‖ *памянш.-ласк.* **начнічо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* (да 1 знач.; разм.).

**НАЧНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* **1.** Лятучая мыш. **2.** *м.* і *ж.* Той (тая), хто доўга не кладзецца спаць, бадзяецца начамі (разм.).

**НАЧНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* ноч. **2.** Такі, які бывае ноччу. *Начная праца. Н. цягнік.* **3.** Такі, актыўнасць якога прыпадае на ноч (аб некаторых жывёлах, насякомых, раслінах). *Начная птушка.*

**НАЧО́РНА**, *прысл.* **1.** Тое, што і *начарна* (разм.). **2.** У чорны колер. *Перафарбаваць валасы н.*

**НАЧО́С**, -у, *м.* **1.** Доўгі ворс на тканінах і трыкатажных вырабах (спец.). **2.** Валасы ў прычосцы, начасаныя на лоб, вушы, скроні, а таксама прычоска ў выглядзе пышна ўзбітых валасоў (разм.). ‖ *прым.* **начо́сны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**НАЧО́ТНІЦТВА**, -а, *н.* Веды, якія грунтуюцца на механічным, некрытычным засваенні прачытанага. ‖ *прым.* **начо́тніцкі**, -ая, -ае.

**НАЧО́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які многа чытае, але павярхоўна, некрытычна засвойвае прачытанае. ‖ *ж.* **начо́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**НАЧО́ЎКІ**, -чо́вак. Прадаўгаватая драўляная або металічная пасудзіна для мыцця бялізны і іншых гаспадарчых патрэб. ‖ *памянш.* **начо́вачкі**, -чак. ‖ *прым.* **начо́вачны**, -ая, -ае.

**НАЧУ́БІЦЬ**, -чублю, -чу́біш, -чу́біць; *зак., каго* (разм.). Нацягаць, натузаць за валасы.

**НАЧУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Пашкодзіць скуру чуханнем.

**НАЧХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** Чхаючы, запырскаць каго-, што-н. **2.** *перан.* Выказаць пагарду да каго-, чаго-н. (разм.). *Н. мне на яго парады.*

**НАЧЫНІ́ЦЬ**, -чыню, -чы́ніш, -чы́ніць; -чы́нены; *зак.* **1.** *што-чым.* Напоўніць, набіць унутранасць чаго-н. *Н. піражкі мясам.* **2.** *чаго.* Прыгатаваць такім спосабам у нейкай колькасці. *Н. кабачкоў.* ‖ *незак.* **начыня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **начы́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (да 1 знач.).

**НАЧЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* **1.** *гл.* начыніць. **2.** Тое, чым начынены пірагі, цукеркі і пад. *Пірог з начынкай.* ‖ *прым.* **начы́начны**, -ая, -ае.

**НАЧЫ́ННЕ**, -я, *н., зб.* **1.** Набор прадметаў, інструментаў для выканання якой-н. работы. *Н. кузні.* **2.** Сукупнасць прадметаў хатняга, гаспадарчага, ваеннага і пад. ўжытку.

**НАЧЫ́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* і *чаго* (разм.). Напісаць хутка або нядбайна.

**НА́ЧЫСТА**, *прысл.* **1.** Чыста, без памарак. *Перапісаць н.* **2.** Цалкам, поўнасцю. *Спаліць усё н.*

**НАЧЫСТАТУ́**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *начыстую* (у 2 знач.).

**НАЧЫСТУ́Ю**, *прысл.* (разм.). **1.** Цалкам; начыста. *Лён вымалочваецца н.* **2.** Нічога не ўтойваючы; без хітрыкаў; шчыра. *Гаварыць н.*

**НАЧЫ́СЦІЦЦА**, -чы́шчуся, -чы́сцішся, -чы́сціцца; *зак.* Старанна пачысціць на сабе вопратку, абутак. ‖ *незак.* **начышча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**НАЧЫ́СЦІЦЬ**, -чы́шчу, -чы́сціш, -чы́сціць; -чы́шчаны; *зак.* **1.** *што.* Старанна вычысціць. *Н. медалі.* **2.** *чаго.* Чысцячы, нарыхтаваць. *Н. бульбы.* ‖ *незак.* **начышча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**НАЧЫ́ТАНЫ**, -ая, -ае. Які набыў грунтоўныя веды ў выніку чытання. *Н. студэнт.* ‖ *наз.* **начы́танасць**, -і, *ж.*

**НАЧЫТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., чаго.* Удосталь пачытаць. *Н. вершаў.* ‖ *незак.* **начы́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НАЧЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; начы́таны; *зак., што* і *чаго.* Прачытаць у нейкай колькасці. *Н. многа кніг.* ‖ *незак.* **начы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *гл.* начапіць.

**НАЧЭ́РПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* Чэрпаючы, набраць. *Н. вады.* ‖ *незак.* **начэ́рпваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАЧЭ́РЧВАЦЬ** *гл.* начарціць.

**НАЧЭ́СВАЦЬ**[1] *гл.* начасаць[1].

**НАЧЭ́СВАЦЬ**[2] *гл.* начасаць[2].

**НАШ**, -ага, *м.*, на́ша, -ай, *ж.*, на́ша, -ага, *н.*, *мн.* на́шы, -ых; *займ. прынал.* **1.** Які належыць нам, які мае адносіны да нас. *Наша акруга.* **2.** *у знач. наз.* **на́шы**, -ых. Блізкія нам людзі, сваякі, таварышы (разм.). *Наведаць нашых.* ◊ **Ведай (знай) нашых; няхай ведаюць (знаюць) нашых** (разм.) — вось мы якія, вось з кім маеце справу. **І нашым і вашым** (разм.) — адным і другім адначасова (служыць, дагаджаць і пад.).

**НАШАПТА́ЦЬ**, -шапчу́, -шэ́пчаш, -шэ́пча; -шапчы́; -шапта́ны; *зак.* **1.** *што, чаго* і *без дап.* Нагаварыць шэптам што-н. *Н. на вуха.* **2.** *перан., без дап.* Нагаварыць на каго-н., напляткарыць. **3.** *на што.* У народных павер'ях: начараваць, выказаць замову. *Н. на ваду.* ‖ *незак.* **нашэ́птваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **нашэ́птванне**, -я, *н.*

**НАШАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Начысціць, нацерці да бляску, навесці глянец. *Н. самавар.* ‖ *незак.* **нашаро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **нашаро́ўванне**, -я, *н.*

**НАШАРМАКА́**, *прысл.* (разм., груб.). Не плацячы грошай, за чужы кошт. *Пракаціўся н.*

**НАШАТКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., чаго.* Шаткуючы, нарыхтаваць. *Н. капусты.* ‖ *незак.* **нашатко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАШАТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., чаго.* Шатруючы, нарыхтаваць. *Н. пшаніцы.*

**НАШАТЫ́Р**, -у́, *м.* **1.** Хлорысты амоній. **2.** Тое, што і нашатырны спірт. ‖ *прым.* **нашаты́рны**, -ая, -ае. ○ **Нашатырны спірт** — водны раствор аміяку, празрыстая, бясколерная вадкасць з вострым пахам (выкарыстоўваецца ў медыцыне).

**НАШВЭ́НДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пашвэндацца доўга; набадзяцца. *Н. за дзень.*

**НАШКЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; -лёны; *зак., што* і *чаго.* Уставіць шкло ў рамы.

**НАШКО́ДЗІЦЬ** *гл.* шкодзіць.

**НАШЛЁПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго* (разм.). Надаваць плескачоў, набіць.

**НАШЛЫ́НДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пашлындаць доўга; наблукацца дзе-н.

**НАШМАРАВА́ЦЦА** *гл.* шмаравацца.

**НАШМАРАВА́ЦЬ** *гл.* шмараваць.

**НАШМА́Т**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *намнога. Дні н. падоўжалі.*

**НАШМО́РГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* Шморгаючы, вырваць або нарваць у якой-н. колькасці. *Н. каласоў. Н. ягад з лісцем.* ‖ *незак.* **нашмо́ргваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАШПІГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны; *зак.* **1.** *гл.* шпігаваць. **2.** *што* і *чаго.* Прыгатаваць шпігаваннем. *Н. качку.* ‖ *незак.* **нашпіго́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАШРУБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* Круцячы па вінтавой разьбе, надзець. *Н. гайку.* ‖ *незак.* **нашрубо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАШТАМПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны; *зак., што* і *чаго.* Вырабіць у якой-н. колькасці штампоўкай. *Н. дэталей.* ‖ *незак.* **наштампо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАШТО́**, *прысл.* **1.** *пыт.* З якой мэтай, для чаго. *Н. ты так робіш?* **2.** *адноснае.* Ужыв. як злучальнае слова ў даданых дапаўняльных сказах. *Папытайцеся ў яго, н. яму трэба было пераязджаць у горад.* **3.** *у знач. часц.* (звычайна ў спалучэнні са словам «ужо»). Ужыв. ў складаных сказах з адваротнай абумоўленасцю састаўных частак. *Н. ўжо быў добры чалавек Пракоп, а і той не стрымаўся.*

**НАШТУ́РХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што* (разм.). Штуршкамі прычыніць боль, набіць.

**НАШТУРХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** *каго-што на каго-што.* Штурхаючы, прымусіць наткнуцца на каго-, што-н. *Н. хлопца на плот.* **2.** *перан. каго (што) на што.* Аказваючы ўздзеянне, накіраваць. *Н. на правільнае рашэнне.* ‖ *незак.* **наштурхо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**НАШУКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., каго-чаго* (разм.). Патраціць многа часу на пошукі каго-, чаго-н. *Нашукаліся дзяцей у лесе.*

**НАШУМЕ́ЦЬ**, -млю́, -мі́ш, -мі́ць; -мі́м, -міце́, -мя́ць; -мі́; *зак.* **1.** Нарабіць шуму; накрычаць на каго-н. *Залішне н.* **2.** *перан.* Выклікаць многа размоў, прыцягнуць да сябе агульную ўвагу. *Вось нашумела гэта справа.*

**НАШУШУ́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Шушукаючыся, нагаварыцца ўволю, многа.

**НА́ШЧА**, *прысл.* Не еўшы нічога. *Прыняць лекі н.*

**НАШЧА́ДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* **1.** Чалавек у адносінах да сваіх продкаў. *Н. Насовіча.* **2.** *мн.* Людзі будучых пакаленняў. *Нашы нашчадкі.* **3.** Сын, наследнік або наогул сваё дзіця (разм.).

**НАШЧАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., чаго.* Шчапаючы, нарыхтаваць у якой-н. колькасці. *Н. лучыны.*

**НАШЧЫПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -чы́паны; *зак.* **1.** *чаго.* Шчыпаючы, набраць, нарваць у якой-н. колькасці. *Н. цыбулі.* **2.** *што.* Зашчаміць, прышчаміць скуру цела ў многіх месцах (разм.). *Н. вушы.*

**НАШЧЭ́НТ**, *прысл.* Зусім, поўнасцю, канчаткова. *Знішчыць н.*

**НАШЫ́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ашыйнік, аброжак. *Пашыць н.* ‖ *прым.* **нашы́йнікавы**, -ая, -ае.

**НАШЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які носяць на шыі, надзяваюць на шыю. *Нашыйныя ўпрыгожанні.*

**НАШЫ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Частка збруі — шырокі рэмень ад хамута да пярэдняга канца дышля. *Н. даўгаваты, трэба падкараціць.* ‖ *прым.* **нашы́льнічны**, -ая, -ае.

**НАШЫ́ЎКА**, -і, *ДМ* -шы́ўцы, *мн.* -і, -шы́вак, *ж.* **1.** *гл.* нашыць. **2.** Кавалак тканіны, скуры і пад., нашытыя на што-н. *Сумка з нашыўкай.* **3.** Знак адрознення вайсковых званняў. *Афіцэрскія нашыўкі.* ‖ *прым.* **нашы́вачны**, -ая, -ае.

**НАШЫЎНЫ́**, -а́я, -о́е. Які нашываецца на што-н. зверху. *Нашыўныя кішэні.*

**НАШЫ́ЦЦА**[1], -шы́юся, -шы́ешся, -шы́ецца; *зак.* (разм.). Напрацавацца шыючы.

**НАШЫ́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -шы́ецца; *зак.* (разм.). Набіцца куды-н., сабрацца дзе-н. у вялікай колькасці. *Нашылася поўная кухня дзяцей.*

**НАШЫ́ЦЬ**, -шы́ю, -шы́еш, -шы́е; -шы́ты; *зак.* **1.** *што.* Прышыць на што-н. *Н. кішэню.* **2.** *чаго.* Пашыць у якой-н. колькасці. *Н. сукенак.* ‖ *незак.* **нашыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **нашы́ўка**, -і, *ДМ* -шы́ўцы, *мн.* -і, -шы́вак, *ж.* (да 1 знач.).

**НАШЭ́ННЕ** *гл.* насіць.

**НАШЭ́ПТВАННЕ** *гл.* нашаптаць.

**НАШЭ́ПТВАЦЬ** *гл.* нашаптаць.

**НАШЭ́СЦЕ**, -я, *н.* **1.** Напад ворага, запаланенне ім чужой тэрыторыі. *Варожае н.* **2.** *перан.* Нечаканы прыход, з'яўленне каго-н. у вялікай колькасці (разм., жарт.). *Н. гасцей.*

**НАЭЛЕКТРЫЗАВА́ЦЦА** *гл.* электрызавацца.

**НАЭЛЕКТРЫЗАВА́ЦЬ** *гл.* электрызаваць.

**НАЯ́ВЕ**, *прысл.* У рэчаіснасці, на самай справе. *Бачыў як н.*

**НАЯВУ́**, *прысл.* Тое, што і *наяве.*

**НАЯ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** У старажытнагрэчаскай міфалогіі: німфа рэк і ручаёў. **2.** Аднагадовая водная травяністая расліна сямейства наядавых, якая мае тонкае разгалінаванае сцябло і малапрыкметныя адзіночныя кветкі. **3.** Лічынка стракозы (а таксама аўсяніка, вяснянкі), якая жыве ў вадаёмах. ‖ *прым.* **ная́давы**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**НАЯДА́ЦЦА** *гл.* наесціся.

**НАЯДА́ЦЬ** *гл.* наесці.

**НАЯЗДЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* наехаць, наездзіць. **2.** Час ад часу прыязджаць. *Н. у вёску да бацькоў.* **3.** *на што.* Спаўзаць уніз, закрываючы вочы. *Шапка наязджае на лоб.*

**НАЯ́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Энергічна, з запалам іграць (на музычным інструменце) або з азартам, з асаблівай стараннасцю рабіць што-н. *Н. на гармоніку.*

**НАЯ́ЎНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Прысутнасць, існаванне. *Быць у наяўнасці.* **2.** Фактычная колькасць чаго-н. у дадзены момант (пра грошы, тавары і пад.). *Касавая н.*

**НАЯ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ёсць у наяўнасці. **2.** *у знач. наз.* **ная́ўныя**, -ых. Грошы, якія ёсць у наяўнасці. *Прадаваць за наяўныя.* ○ **Наяўны разлік** — разлік грашыма, якія маюцца ў наяўнасці.

**НЕ**, *часц. адмоўная.* **1.** Служыць для выражэння адмоўя пры розных членах сказа. *Не заўважаць. Жыць не аднаму.* **2.** Служыць адмоўным адказам на станоўчае пытанне. *Ты згодзен? — Не, не згодзен.* **3.** Мае значэнне няпоўнага сказа пры адмоўных адказах на пытанні; тое, што і *няма* (у 2 знач.). *У вас ёсць білет? — Не.* **4.** Ужыв. замест выказніка з адмоўем, а таксама замест словазлучэння або цэлага сказа з адмаўленнем ці проціпастаўленнем. *Трэба вызначыць, каторы партрэт зроблены добра, а каторы не.* **5.** Надае значэнне няпэўнасці, няпоўнага адмаўлення, непаўнаты дзеяння ці стану. *Гора не гора. Ці гаварыць гэта, ці не гаварыць.* **6.** У спалучэнні з часц. «ці» ў пытальных сказах выражае мадальнае значэнне сцвярджэння або няпэўнасці, здагадкі. *Ці не лепш было б табе паехаць працаваць у вёску?* **7.** У спалучэнні з пытальнымі займеннікамі і прыслоўямі пры асаблівай інтанацыі вымаўлення надае сэнс станоўчага адказу. — *Ці не сустрэў у горадзе знаёмых? — Чаму не?* **8.** У спалучэнні з дзеясловамі, якія канчаюцца на «-ся», «-цца» і маюць прыстаўку «на-», надае значэнне немагчымасці закончыць дзеянне. *Не налюбуецца мастак роднымі краявідамі.* **9.** Уваходзіць у склад устойлівых словазлучэнняў: «далёка не»; «не раўнуючы, як»; «амаль не»; «бадай не»; «не раз і не два»; «не вельмі каб» і пад. **10.** Уваходзіць у склад словазлучэнняў, якія з'яўляюцца складанымі злучнікамі і злучаль-

нымі словамі: «не то... не то»; «не то што»; «не то... а»; «не толькі, ...але (і)» і пад.

**НЕ...** (а таксама **НЯ...**), *прыстаўка.* Надае слову: 1) новае, процілеглае значэнне, напр., *невясёлы* (сумны); 2) тое ж, але з адценнем абмежаванасці, напр., *неблагі;* 3) значэнне адмаўлення таго, што абазначае дадзенае слова без гэтай прыстаўкі, напр.: *неакуратны, непаспяховы, недалёка.*

**НЕА...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая па знач. адпавядае слову «новы», напр.: *неалагізм, неаліт, неарэалізм, неакласіцызм.*

**НЕАБАРАЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, які не можа развівацца ў адваротным напрамку. *Н. працэс.* ‖ *наз.* **неабарача́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕАБА́ЧЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які дзейнічае неразважліва, не думае аб выніках. *Н. вучынак.* **2.** Няўважлівы, нячулы. *Неабачлівыя адносіны.* ‖ *наз.* **неаба́члівасць**, -і, *ж.*

**НЕАБВЕ́РЖНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *неабвяргальны.* ‖ *наз.* **неабве́ржнасць**, -і, *ж.*

**НЕАБВЯРГА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, які не можа быць абвергнуты; пераканальны, бясспрэчны. *Н. факт.* ‖ *наз.* **неабвярга́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕАБДУ́МАНЫ**, -ая, -ае. Зроблены без абдумвання, неразважлівы. *Н. учынак. Неабдуманае рашэнне.* ‖ *наз.* **неабду́манасць**, -і, *ж.*

**НЕАБДЫ́МНЫ**, -ая, -ае. Велізарных памераў, бязмежны. *Н. сусвет.* ‖ *наз.* **неабды́мнасць**, -і, *ж.*

**НЕАБЖЫ́ТЫ**, -ая, -ае. Такі, у якім яшчэ мала жылі; неасвоены для жылля. *Неабжытая кватэра.* ‖ *наз.* **неабжы́тасць**, -і, *ж.*

**НЕАБСТРАЛЯ́НЫ**, -ая, -ае. Які не быў у баях, не прывык да стральбы. *Неабстраляныя байцы.*

**НЕАБСЯ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Вялікі па працягласці, памерах; бязмежны. *Н. акіян.* ‖ *наз.* **неабся́жнасць**, -і, *ж.*

**НЕАБХО́ДНАСЦЬ**, -і, *ж.* Патрэба ў кім-, чым-н. *Прадметы першай неабходнасці.*

**НЕАБХО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, без якога нельга абысціся; патрэбны. *Неабходныя рэчы. Неабходныя інструменты.* **2.** Абавязковы, непазбежны. *Неабходныя меры.*

**НЕАБЧАСА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Неапрацаваны часаннем[2]. *Н. камень.* **2.** *перан.* Неадукаваны, некультурны, грубы (разм.).

**НЕАГЛАБАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Імкненне вялікай дзяржавы да сусветнага панавання. *Палітыка неаглабалізму.* ‖ *прым.* **неаглабалі́сцкі**, -ая, -ае. *Неаглабалісцкія імкненні.*

**НЕАГЛЯ́ДНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *неабсяжны. Неаглядныя прасторы.* ‖ *наз.* **неагля́днасць**, -і, *ж.*

**НЕАДАБРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які выражае неадабрэнне. *Н. погляд.* ‖ *наз.* **неадабра́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕАДАБРЭ́ННЕ**, -я, *н.* Адмоўная ацэнка каго-, чаго-н. *Выказаць сваё н.*

**НЕАДДЗЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, якога нельга аддзяліць ад другога. *Неаддзельныя паняцці.* ‖ *наз.* **неаддзе́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕАД'Е́МНЫ**, -ая, -ае. (кніжн.). Які з'яўляецца састаўной, арганічнай часткай каго-, чаго-н.; неадрыўны. *Народнасць — неад'емная рыса творчасці Якуба Коласа.* ‖ *наз.* **неад'е́мнасць**, -і, *ж.*

**НЕАДКЛА́ДНЫ**, -ая, -ае. Які нельга адкласці; тэрміновы. *Н. рамонт. Неадкладная дапамога.* ‖ *наз.* **неадкла́днасць**, -і, *ж.*

**НЕ́АДКУЛЬ**, *прысл.* Няма такога месца, адкуль можна было б узяць, узяцца, з'явіцца і пад. *Гасцей чакаць н.*

**НЕАДЛУ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які пастаянна знаходзіцца пры кім-, чым-н. *Н. спадарожнік.* **2.** Такі, у час якога нікуды не адлучаюцца. *Неадлучнае дзяжурства.* ‖ *наз.* **неадлу́чнасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**НЕАДНАРАЗО́ВЫ**, -ая, -ае. Які робіцца або адбываецца не адзін раз. *Неаднаразовае запрашэнне. Н. чэмпіён.* ‖ *наз.* **неаднаразо́васць**, -і, *ж.*

**НЕАДНАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Разнародны па складзе; неаднастайны. *Н. склад насельніцтва.* **2.** Які адносіцца да іншай катэгорыі з'яў, прадметаў і інш. *Неаднародныя хімічныя сумесі.* ‖ *наз.* **неаднаро́днасць**, -і, *ж.*

**НЕАДНО́ЙЧЫ**, *прысл.* Не адзін раз. *За дні хваробы ён н. перадумаў свой жыццёвы шлях.*

**НЕАДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які цяжка, немагчыма пераадолець; магутны. *Неадольная сіла.* ‖ *наз.* **неадо́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕАДПАВЕ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не адпавядае чаму-н., не падыходзіць да чаго-н. *Неадпаведныя ўмовы.* **2.** Які пазбаўлены адпаведнасці, прапарцыянальнасці; несуразмерны. *Жаданні, неадпаведныя магчымасцям.* ‖ *наз.* **неадпаве́днасць**, -і, *ж.*

**НЕАДСТУ́ПНЫ**, -ая, -ае. Настойлівы, неадчэпны. *Неадступнае пытанне: «Як жыць далей?»* ‖ *наз.* **неадсту́пнасць**, -і, *ж.*

**НЕАДУШАЎЛЁНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не адносіцца да свету жывых істот; нежывы. *Неадушаўлёныя прадметы.* **2.** У граматыцы: які адносіцца да катэгорыі назоўнікаў, што абазначаюць розныя з'явы рэчаіснасці, нежывыя прадметы. ‖ *наз.* **неадушаўлёнасць**, -і, *ж.*

**НЕАДЧЭ́ПНЫ**, -ая, -ае. Які не дае спакою; назойлівы. *Гудуць неадчэпныя камары.* ‖ *наз.* **неадчэ́пнасць**, -і, *ж.*

**НЕАДЭКВА́ТНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** Які не супадае з чым-н., пазбаўлены адэкватнасці. *Неадэкватныя катэгорыі.* **2.** Які не адпавядае норме, якім-н. патрабаванням. *Неадэкватныя паводзіны.* ‖ *наз.* **неадэква́тнасць**, -і, *ж.*

**НЕАКРЭ́СЛЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Дакладна нявызначаны, няпэўны. *Н. час выступлення.* **2.** Невыразны, няясны. *Неакрэсленыя вяршыні гор.* ‖ *наз.* **неакрэ́сленасць**, -і, *ж.*

**НЕАЛАГІ́ЗМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* У мовазнаўстве: новае слова або выраз, а таксама новае значэнне старога слова.

**НЕАЛІ́Т**, -у, *М* -ліце, *м.* Пазнейшы перыяд каменнага веку (8—3-е тысячагоддзі да н.э.). *Эпоха неаліту.*

**НЕАНДЭРТА́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* Выкапнёвы чалавек эпохі ранняга і сярэдняга палеаліту, які жыў 200—35 тысяч гадоў таму назад у Еўропе, Азіі і Афрыцы. ‖ *прым.* **неандэрта́льскі**, -ая, -ае.

**НЕАПЛА́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не можа быць аплачаны. *Н. рахунак.* **2.** *перан.* Вельмі значны, большы за любую ўзнагароду. *Н. доўг.* ‖ *наз.* **неапла́тнасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**НЕАРГАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не ўключае ў сябе жывыя арганізмы; нежывы. *Неарганічная прырода.* **2.** Які адносіцца да нежывой прыроды. *Неарганічныя рэчывы.* ○ **Неарганічная хімія** — раздзел хіміі, які вывучае састаў, уласцівасці і ператварэнні рэчываў нежывой прыроды.

**НЕАСЛА́БНЫ**, -ая, -ае. Які пастаянна дзейнічае; безупынны. *Н. кантроль.* ‖ *наз.* **неасла́бнасць**, -і, *ж.*

**НЕАСПРЭ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які не выклікае пярэчанняў; бясспрэчны. *Н. факт.* ‖ *наз.* **неаспрэ́чнасць**, -і, *ж.*

**НЕАФІ́Т**, -а, *М* -фіце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Новы паслядоўнік якой-н. рэлігіі (спец.). **2.** *перан.* Новы прыхільнік якога-н. вучэння (кніжн.). ‖ *ж.* **неафі́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**НЕАФІЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які не мае афіцыйнага значэння. *Н. прыём. Неафіцыйная сустрэча. Неафіцыйная заява.* ‖ *наз.* **неафіцы́йнасць**, -і, *ж.*

**НЕАХА́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не захоўвае чысціні, парадку; які ўтрымліваецца ў беспарадку. *Неахайная гаспадыня. Н. пакой.* **2.** Зроблены абы-як, без стараннасці. *Неахайная работа.* ‖ *наз.* **неаха́йнасць**, -і, *ж.*

**НЕАХВО́ТА**, -ы, *ДМ* -воце, *ж.* **1.** Адсутнасць ахвоты да чаго-н. *Працаваць з неахвотай.* **2.** *безас., у знач. вык.* Не хочацца, няма жадання (што-н. рабіць). *Н. з ім размаўляць.*

**НЕАХВО́ТНЫ**, -ая, -ае. Які не выказвае ахвоты да чаго-н.

**НЕАХВО́ЧЫ**, -ая, -ае. Які не мае жадання рабіць што-н., не выказвае ахвоты да чаго-н. *Н. да вучобы.*

**НЕАХО́ПНЫ**, -ая, -ае. **1.** Неабсяжны, неабдымны, вельмі вялікі па сваёй працягласці. *З поўначы сунулася неахопная градавая хмара.* **2.** Вялікі па ступені праяўлення. *Ён адчуваў у сабе неахопную сілу.* ‖ *наз.* **неахо́пнасць**, -і, *ж.*

**НЕАЦЭ́ННЫ**, -ая, -ае. Надзвычай важны. *Неацэнныя заслугі.* ‖ *наз.* **неацэ́ннасць**, -і, *ж.*

**НЕ́БА**, -а, *мн.* нябёсы, нябёс *і* нябёсаў, *н.* Уся бачная над Зямлёй прастора ў форме купала. *На небе.* ◊ **Быць на сёмым небе** — перажываць, адчуваць вялікую радасць. **Пад адкрытым небам** — не ў памяшканні. **Трапіць пальцам у неба** (разм., жарт.) — сказаць што-н. неўпапад, недарэчы. **Узнесці да неба** — непамерна расхваліць каго-, што-н. **Як гром з яснага неба** — раптоўна, зусім нечакана. **Як з неба**

**зваліўся** (разм.) — 1) нечакана з'явіўся; раптоўна здарыўся; 2) не разумее таго, што адбываецца навокал. **Як неба і зямля** — нічога падобнага, поўная процілегласць. ‖ *прым.* **нябе́сны**, -ая, -ае. *Н. купал. Нябесная вышыня.*

**НЕБАГА́ТА**, *у знач. вык., каго-чаго.* Мала, у невялікай колькасці. *Рыбы ў мясцовых рэках н.*

**НЕБАГА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае вялікай маёмасці, вялікіх матэрыяльных сродкаў. *Небагатае прадпрыемства.* **2.** Недарагі; сціплы. *Небагатыя падарункі.* **3.** *перан.* Недастатковы, абмежаваны. *Н. рэпертуар.*

**НЕБАРА́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ра́цы, *Т*-ай (-аю), *ж., мн.* -і, -ра́к (разм.). Няшчасны чалавек, які выклікае спагаду, спачуванне.

**НЕБАСКРО́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вельмі высокі шматпавярховы будынак; хмарачос. ‖ *прым.* **небаскро́бны**, -ая, -ае.

**НЕБАСХІ́Л**, -у, *м.* Частка неба над гарызонтам.

**НЕБЕЗ...** (а таксама **небес...**), *прыстаўка.* Складаная прыстаўка прыметнікаў (і ўтвораных ад іх назоўнікаў), якая надае значэнне ўмеранай, але дастаткова значнай ступені якасці, напр.: *небезнадзейны, небеспадстаўны.*

**НЕБЕЗДАКО́РНЫ**, -ая, -ае. Які не пазбаўлены недахопаў. *Яго адносіны да працы небездакорныя.*

**НЕБЕС...**, *прыстаўка.* Тое, што і *небез...*; пішацца замест «небез...» перад глухімі зычнымі, напр.: *небескарысны, небеспадстаўны.*

**НЕБІТКІ́**, -а́я, -о́е. Які не разбіваецца пры ўдары, падзенні. *Небіткое шкло.*

**НЕБЛАГІ́**, -а́я, -о́е. **1.** Нядрэнны, даволі добры. *Н. чалавек. Н. ўраджай.* **2.** Дастатковы для якой-н. мэты; даволі значны. *У яго н. вопыт практычнай работы.*

**НЕБЫВА́ЛЫ**, -ая, -ае. Якога раней не было, незвычайны. *Небывалае здарэнне.* ‖ *наз.* **небыва́ласць**, -і, *ж.*

**НЕБЫЛІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ліц, *ж.* **1.** Выдумка, ілжывае паведамленне, хлусня. *Разносіць небыліцы.* **2.** Від жартаўлівых твораў вуснай народнай славеснасці; казка.

**НЕ́БЫЛЬ**, -і, *ж.* Тое, чаго не было, не бывае; небыліца.

**НЕБЫЦЦЁ**, -я́, *н.* Адсутнасць існавання, жыццядзейнасці; нябыт. *Адысці ў н. Узнікнуць з небыцця.*

**НЕБЯЗ...** (а таксама **небяс...**), *прыстаўка.* Ужыв. замест «небез...», «небес...» у першым складзе перад націскам, напр.: *небязгрэшны, небяскрыўдны.*

**НЕБЯСПЕ́КА**, -і, *ДМ* -пе́цы, *ж.* Стан, становішча, якое пагражае каму-н., можа прычыніць няшчасце, зло, шкоду. *Адчуваць небяспеку.*

**НЕБЯСПЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які можа прычыняць няшчасце, зло, шкоду. *Небяспечнае становішча. Н. крок. Туды зараз небяспечна* (прысл.) *ехаць.* ‖ *наз.* **небяспе́чнасць**, -і, *ж.*

**НЕ́ВАД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы́ *і (з ліч. 2, 3, 4)* не́вады, -о́ў, *м.* Вялікая рыбалоўная сетка. *Закінуць н.* ‖ *прым.* **не́вадны**, -ая, -ае.

**НЕВАЖНЕ́ЦКІ**, -ая, -ае (разм.). Не зусім добры. *Неважнецкае здароўе.*

**НЕВЕРАГО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Непраўдападобны, фантастычны. *Неверагодная гісторыя.* **2.** Надзвычай вялікі, значны; неймаверны. *Неверагодная хуткасць.* **3.** Які выклікае сумненні ў сваёй правільнасці. *Неверагодныя звесткі.* ‖ *наз.* **неверагo´днасць**, -і, *ж.* (да 1 і 3 знач.). ◊ **Да неверагоднасці** (разм.) — надзвычайна, вельмі.

**НЕВІДЗІ́МКА**, -і. **1.** *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.*; *ДМ*-мцы, *Т*-ай (-аю), *ж., мн.* -і, -мак. Нябачная істота. *Чалавек-н.* **2.** *ж.* Маленькая тонкая шпілька або заколка для жаночай прычоскі. ◊ **Шапка-невідзімка** — у казках: шапка, якая робіць нябачным таго, хто яе надзене.

**НЕВІДУ́ШЧЫ**, -ая, -ае. Які страціў зрок; сляпы. *Н. чалавек.*

**НЕВІНАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Які не мае за сабой віны; які не мае дачынення да злачынства. ‖ *наз.* **невінава́тасць**, -і, *ж.*

**НЕ́ВУК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Неадукаваны, недасведчаны чалавек. *У музыцы ён безнадзейны н.* ‖ *прым.* **не́вуцкі**, -ая, -ае.

**НЕ́ВУЦТВА**, -а, *н.* Адсутнасць ведаў, неадукаванасць, недасведчанасць у чым-н. *Праявіць н.*

**НЕВЫГО́ДА**, -ы, *ДМ*-дзе, *мн.* -ы, -го́д, *ж.* **1.** пераважна *мн.* Адсутнасць, недахоп неабходных выгод. *Невыгоды кватэры.* **2.** Нягода, непрыемнасць; цяжкае становішча (разм.). *Невыгоды жыцця.*

**НЕВЫГО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае выгод, дрэнна прыстасаваны для чаго-н. *Невыгодная кватэра.* **2.** Неспрыяльны, нязручны, непрыемны. *Невыгоднае становішча.* ‖ *наз.* **невыго́днасць**, -і, *ж.*

**НЕВЫКА́ЗНЫ**, -ая, -ае. Такі, што цяжка або немагчыма выказаць, перадаць словамі. *Невыказная прыгажосць.* ‖ *наз.* **невыка́знасць**, -і, *ж.*

**НЕВЫКАНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, што не можа быць выкананы. *Невыканальнае заданне. Невыканальнае патрабаванне.* ‖ *наз.* **невыкана́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕВЫКАНА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Нездзяйсненне таго, што было даручана, намечана, меркавалася зрабіць. *Н. планавых заданняў.* **2.** Ухіленне ад выканання пастаноў, законаў.

**НЕВЫКАРАНЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які не паддаецца выкараненню. *Невыкараняльныя недахопы.* ‖ *наз.* **невыкараня́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕВЫЛА́ЗНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, па якім цяжка прайсці, з якога цяжка выбрацца; непраходны. *Невылазная гразь.* **2.** *перан.* Такі, ад якога цяжка, немагчыма вызваліцца. *Н. доўг.*

**НЕВЫЛЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які нельга вылечыць. *Невылечная хвароба.* ‖ *наз.* **невыле́чнасць**, -і, *ж.*

**НЕВЫМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які не паддаецца вымярэнню, вельмі вялікі. *Невымерныя прасторы.* ‖ *наз.* **невыме́рнасць**, -і, *ж.*

**НЕВЫНО́СНЫ**, -ая, -ае. Які цяжка, немагчыма вынесці; нясцерпны. *Н. боль.* ‖ *наз.* **невыно́снасць**, -і, *ж.*

**НЕВЫЧАРПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які практычна цяжка вычарпаць, выкарыстаць поўнасцю; вельмі багаты. *Невычарпальныя багацці.* ‖ *наз.* **невычарпа́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕВЫЧЭ́РПНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *невычарпальны.* ‖ *наз.* **невычэ́рпнасць**, -і, *ж.*

**НЕВЯДО́МАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* невядомы. **2.** Адсутнасць звестак, ведаў аб кім-, чым-н. **3.** Сціплае, непрыкметнае існаванне. *Жыць у невядомасці.*

**НЕВЯДО́МЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, якога не ведаюць, аб якім няма звестак; незнаёмы. *Н. востраў.* **2.** Які не карыстаецца вялікай папулярнасцю; малавядомы. *Н. аўтар.* **3.** Нязведаны, не пражыты раней. *Невядомае пачуццё.* **4.** *у знач. наз.* **невядо́мы**, -ага, *м.*; **невядо́мая**, -ай, *ж.* Незнаёмы, незнаёмая. *Прыходзіў н.* **5.** *у знач. наз.* **невядо́мае**, -ага, *н.* Аб чым-н. нязведаным. *Крок у невядомае.* **6.** *у знач. наз.* **невядо́мае**, -ага, *н.* У матэматыцы: велічыня, якую трэба знайсці. *Ураўненне з двума невядомымі.* ‖ *наз.* **невядо́масць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**НЕВЯЛІ́КІ**, -ая, -ае. **1.** Малы па велічыні і памерах, нязначны па колькасці, нядоўгі (пра час). *Н. пакой. Невялікая чародка качак. Н. перапынак.* **2.** Нязначны па сіле, інтэнсіўнасці, якасці, змесце і пад. *Н. снег.* **3.** Які не мае вялікага значэння ў грамадстве. *Невялікая пасада.* **4.** Які нічым не вылучаецца; пасрэдны. *Н. знаўца.*

**НЕВЯРТА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Чалавек, які не вярнуўся на радзіму, застаўся жыць у чужой краіне. ‖ *ж.* **невярта́нка**, -і, *ДМ*-нцы, *мн.* -і, -нак.

**НЕГАБАРЫ́Т**, -у, *М* -ры́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Вырабы, прадукты, якія сваімі памерамі не адпавядаюць норме, стандарту. ‖ *прым.* **негабары́тны**, -ая, -ае. *Негабарытная рэч.*

**НЕГАВАРКІ́**, -а́я, -о́е. **1.** Не схільны ўступаць у размовы; маўклівы. *Н. хлопец.* **2.** Які ўхіляецца ад размоў з людзьмі; замкнуты. *Па складзе характару ён лічыўся негаваркім.*

**НЕГАДА́НЫ**, -ая, -ае. Нечаканы, неспадзяваны. *Н. госць.*

**НЕГАТЫВІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Негатыўныя, адмоўныя адносіны да рэчаіснасці. ‖ *прым.* **негатыві́сцкі**, -ая, -ае.

**НЕГАТЫ́Ў**[1], -тыва, *мн.* -тывы, -тываў, *м.* Адбітак на фатаграфічнай пласцінцы (плёнцы), у якім светлыя месцы атрымліваюцца цёмнымі, а цёмныя — светлымі, а таксама пласцінка (плёнка) з такім адбіткам. *Праявіць н.* ‖ *прым.* **негаты́ўны**, -ая, -ае. *Негатыўная плёнка.*

**НЕГАТЫ́Ў**[2], -тыву, *м.* (разм.). Адмоўны вынік якіх-н. дзеянняў, адмоўны пачатак; увогуле факты, звесткі, эмоцыі і пад. адмоўнага характару. *Ён ва ўсім бачыць толь-*

*кі н.* ‖ *прым.* **негаты́ўны**, -ая, -ае. *Н. вынік. Негатыўная ацэнка. Негатыўныя эмоцыі.*

**НЕГА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). У граматыцы: слова ці марфема, якія заключаюць у сабе знач. процілегласці таму, што сцвярджаецца, напр.: не, ні; адмаўленне.

**НЕГАЦЫЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Аптовы купец, камерсант, які вёў гандаль пераважна за межамі сваёй краіны. ‖ *ж.* **негацыя́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **негацыя́нцкі**, -ая, -ае.

**НЕГРО́ІДНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **негроідная раса** (спец.) — раса людзей з цёмнай скурай, кучаравымі валасамі, шырокім носам і некаторымі іншымі адзнакамі.

**НЕ́ГРЫ**, -аў, *адз.* негр, -а, *м.* Людзі, якія належаць да негроіднай расы. ‖ *ж.* **негрыця́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **негрыця́нскі**, -ая, -ае.

**НЕДА...** *прыстаўка.* Складаная прыстаўка, якая надае знач. непаўнаты, недастатковасці дзеяння, неадпаведнасці патрэбнай норме, напр.: *недабраць, недавыканаць, недаспелы, недаразвіты.*

**НЕДААЦАНІ́ЦЬ**, -цаню, -цэ́ніш, -цэ́ніць; -цэ́нены; *зак., каго-што.* Недастаткова, не ў поўнай меры ацаніць каго-, што-н., прызнаць чые-н. якасці. ‖ *незак.* **недааца́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **недаацэ́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**НЕДАБО́Р**, -у, *м.* Няпоўны збор; недабраная колькасць каго-, чаго-н. *Н. пры паступленні ва ўніверсітэт.*

**НЕДАБРАЯ́КАСНЫ**, -ая, -ае. **1.** Нізкай якасці; дрэнны. *Недабраякасныя тавары.* **2.** Тое, што і *злаякасны.* ‖ *наз.* **недабрая́каснасць**, -і, *ж.*

**НЕДАВЕ́Р**, -у, *м.* Сумненне ў правільнасці, праўдзівасці чаго-н., падазронасць, адсутнасць даверу. *Адносіцца з недаверам.*

**НЕДАВЕ́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* (разм.). Той, хто не верыць у што-н.; недаверлівы чалавек.

**НЕДАВЕ́Р'Е**, -я, *н.* Тое, што і *недавер.*

**НЕДАВУ́ЧКА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -чцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -чак (разм.). Недавучаны, маладасведчаны чалавек.

**НЕДАВЯ́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* (разм.). **1.** Чалавек, які не верыць у Бога; бязбожнік. **2.** Бязлітасны, жорсткі чалавек; ліхадзей.

**НЕДАГЛЕ́ДЗЕЦЬ**, -ле́джу, -ле́дзіш, -ле́дзіць; -ле́джаны; *зак., каго-што* і *без дап.* **1.** Праявіць недастаткова ўвагі пры наглядзе за кім-, чым-н., не ўберагчы ад каго-, чаго-н. *Н. дзіця.* **2.** Не заўважыць, правяраючы што-н. *Карэктар недагледзеў памылку.*

**НЕДАГЛЯ́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Недастатковы нагляд за кім-, чым-н.; памылка, промах, зробленыя з-за няўважлівасці, нядбайнасці. *Дапусціць н.*

**НЕДАКО́РМ**, -у, *м.* Недастатковае кармленне, харчаванне; няпоўная выдача корму. *Н. затрымлівае рост маладняку.*

**НЕДАКУ́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* Рэштка недакуранай папяросы, цыгары, акурак.

**НЕДАЛЁКА**, *у знач. вык.* **1.** Аб нязначнай адлегласці да каго-, чаго-н. *Да вёскі н.* **2.** Аб хуткім надыходзе чаго-н. *Н. ўжо і вечар.*

**НЕДАЛЁКІ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца або адбываецца на нязначнай адлегласці; блізкі. *Н. лес. Недалёка* (прысл.) *ад горада было возера.* **2.** Такі, які адбываўся нядаўна або адбудзецца, надыдзе неўзабаве. *У недалёкім мінулым.* **3.** *перан.* Разумова абмежаваны; някемлівы. *Н. чалавек.* ‖ *наз.* **недалёкасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**НЕДАЛЁТ**, -у, *М* -лёце, *м.* Падзенне снарада, кулі бліжэй намечанай цэлі.

**НЕДАЛІЧЫ́ЦЦА**, -лічу́ся, -лі́чышся, -лі́чыцца; *зак., каго-чаго.* Выявіць пры падліку недахоп, адсутнасць каго-, чаго-н. *Пасля атакі недалічыліся некалькіх байцоў.* ‖ *незак.* **недалі́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**НЕДАЛУ́ГА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -лу́зе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -лу́г (разм.). **1.** Слабы, хваравіты чалавек. **2.** Няспрытны, няўмелы чалавек; недарэка. ‖ *прым.* **недалу́жны**, -ая, -ае.

**НЕДАЛУ́ЖНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** *гл.* недалуга. **2.** Непрыглядны, няскладны, няўклюдны. ‖ *наз.* **недалу́жнасць**, -і, *ж.*

**НЕДАЛЮ́БЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што.* Адчуваць непрыязнасць, непрыхільнасць да каго-, чаго-н.

**НЕДАМАГА́ННЕ**, -я, *н.* Хваравіты стан. *Лёгкае н.*

**НЕДАМАГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Адчуваць недамаганне, быць не зусім здаровым.

**НЕДАМЕ́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* **1.** Тое, што не мае належнага або нармальнага памеру. **2.** Абутак і вопратка большага памеру, чым дзіцячы, і меншага, чым дарослы (разм.).

**НЕДАМО́ЎЛЕНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Непаўната, незакончанасць выказвання, замоўчванне чаго-н. *Адчувалася н.* **2.** Адсутнасць дамоўленасці, узгодненасці. *Н. паміж сумежнікамі.*

**НЕДАПЕ́ЧАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Не даведзены пячэннем да поўнай гатоўнасці. *Недапечаная бульба.* **2.** *перан.* Недастаткова падрыхтаваны да якой-н. працы; малавопытны (разм.). **3.** *перан.* Вялы, бязвольны (разм.). *Н. хлопец.*

**НЕДАПЁК**, -у, *м.* **1.** Недастатковая прапечанасць хлеба і хлебных вырабаў. **2.** Недадача печанай прадукцыі з адпушчанай колькасці мукі.

**НЕДАРАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які нельга дараваць, прабачыць. *Недаравальная легкадумнасць.* ‖ *наз.* **недарава́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕДАРАЗВІ́ТЫ**, -ая, -ае. Які не дасягнуў пэўнага развіцця, затрымаўся ў росце, развіцці або вылучаецца недастатковым развіццём разумовых здольнасцей. *Недаразвітае насенне. Недаразвітае дзіця.* ‖ *наз.* **недаразві́тасць**, -і, *ж.*

**НЕДАРМА́**, *прысл.* **1.** Не без падставы, не без прычыны. *Я н. адчуваў небяспеку.* **2.** Не дарэмна. *Н. есці бацькоўскі хлеб.*

**НЕДАРО́БКА**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* Незакончанасць, незавершанасць якой-н. працы, справы. *Ліквідаваць недаробкі будаўнікоў.*

**НЕДАРО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Тое, што і *неўраджай.*

**НЕДАРО́СТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Чалавек, які не дасягнуў паўналецця; падлетак. **2.** Чалавек, жывёла або расліна нізкага росту. *Дзяўчынка-н. Бярозкі-недаросткі.* **3.** *перан.* Той, хто не дасягнуў грамадскай, інтэлектуальнай сталасці. *Палітычныя недаросткі.*

**НЕДАРЭ́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -рэ́цы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -рэ́к *і* -аў (разм.). **1.** Някемлівы, няўмелы, адсталы чалавек. **2.** Тое, што і *няўклюда.* **3.** Слабы, хваравіты чалавек.

**НЕДАРЭ́ЧНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* недарэчны. **2.** *мн.* -і, -ей. Недарэчны ўчынак, думка, паводзіны і пад. *З ім часта адбываліся розныя недарэчнасці.*

**НЕДАРЭ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Сказаны, зроблены неўпапад, не да месца. *Н. жарт.* **2.** Неразумны, бяссэнсавы. *Недарэчныя прапановы.* **3.** Няўклюдны, нясkladны (знешне). **4.** Які не адпавядае сітуацыі, абставінам. *Недарэчная весялосць.* ‖ *наз.* **недарэ́чнасць**, -і, *ж.*

**НЕДАРЭ́ЧЫ**. **1.** *прысл.* Не ў час; не да месца. *Выступленне н.* **2.** *у знач. вык.* Не адпавядае абставінам. *Гэта паездка была н.*

**НЕДАСВЕ́ДЧАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае належных ведаў аб чым-н. *Н. юнак.* **2.** Нявопытны ў чым-н., неспрактыкаваны. ‖ *наз.* **недасве́дчанасць**, -і, *ж.*

**НЕДАСЕ́Ў**, -се́ву, *м.* Частка зямлі, якая засталася незасеянай.

**НЕДАСКАНА́ЛЫ**, -ая, -ае. Які не дасягнуў дасканаласці, не пазбаўлены недахопаў. *Недасканалыя творы.* ‖ *наз.* **недаскана́ласць**, -і, *ж.*

**НЕДАСО́Л**, -у, *м.* Недастатковая салёнасць. *Н. на стале, перасол на спіне* (прыказка).

**НЕДАСПА́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́; *зак.* Паспаць менш, чым трэба; не выспацца. ‖ *незак.* **недасыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **недасыпа́нне**, -я, *н.* *Хранічнае н.*

**НЕДАСТАТКО́ВАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* недастатковы. **2.** Недастатковая функцыя якога-н. фізіялагічнага органа (спец.). *Сардэчная н.*

**НЕДАСТАТКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Невялікі па колькасці, які не адпавядае якім-н. патрэбам; слабы, малы. *Недастатковыя сродкі. Н. вопыт.* **2.** Няпоўны, нездавальняючы; негрунтоўны, несур'ёзны. *Недастатковыя веды.* ‖ *наз.* **недастатко́васць**, -і, *ж.* *Н. прынятых мер.*

**НЕДАСТА́ЧА**, -ы, *мн.* -ы, -та́ч, *ж.* **1.** Адсутнасць патрэбнай колькасці каго-, чаго-н. *Н. паліва.* **2.** Адсутнасць патрэбнай колькасці грошай, маёмасці, выяўленая пры праверцы. *Выявіць недастачу.* **3.** Адсутнасць дастатковых сродкаў на пражыццё; недахоп самага неабходнага.

**НЕДАСЯГА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, якога нельга дасягнуць, ажыццявіць. *Недасягальная мэта.* ‖ *наз.* **недасяга́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕДАСЯ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *недасягальны.* ‖ *наз.* **недася́жнасць**, -і, *ж.*

**НЕДАТЫКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ахоўваецца законам ад усякіх замахаў з боку каго-н. *Недатыкальная асоба.* **2.** Які захоўваецца ў цэласці, не падлягае расходаванню. *Н. запас.* ‖ *наз.* **недатыка́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕДАЎМЕ́ННЕ**, -я, *н.* Здзіўленне, сумненне, стан нерашучасці як вынік неразумення чаго-н., няяснасці ў чым-н. *Быць у недаўменні.*

**НЕДАЎМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які выяўляе недаўменне, поўны недаўмення. *Недаўменнае пытанне.* ‖ *наз.* **недаўме́ннасць**, -і, *ж.*

**НЕДАЎМЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Знаходзіцца ў недаўменні; выказваць, выяўляць недаўменне.

**НЕДАХО́П**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Памылка, хіба; недасканаласць чаго-н.; адмоўная рыса ў каго-н. *Выявіць недахопы ў рабоце.* **2.** Адсутнасць неабходнай колькасці каго-, чаго-н.; патрэба ў кім-, чым-н. *Н. урачоў. Н. будаўнічых матэрыялаў.*

**НЕДАЯДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Есці недастаткова; дрэнна харчавацца. ‖ *наз.* **недаяда́нне**, -я, *н.*

**НЕ́ДЗЕ**, *прысл.* **1.** У нейкім, дакладна невядомым месцы; дзесьці. *Н. пачуўся стрэл.* **2.** *з інф.* Няма месца (дзе можна было б што-н. зрабіць, размясціцца і пад.). *Схавацца н.* **3.** *з інф.* Неадкуль (што-н. узяць, атрымаць і пад.). *Н. было напіцца.* **4.** Невядома куды, кудысьці. *Сысці н. з дому.* **5.** Ужыв. ў выпадках, калі дакладна не вызначаецца час дзеяння. *Прыехалі н. к вечару.*

**НЕДЗЯЛІ́МЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не падлягае падзелу, цэласны. *Н. фонд.* **2.** Які не дзеліцца без астатку. *Н. лік.* ‖ *наз.* **недзялі́масць**, -і, *ж.*

**НЕДУРНЫ́**, -а́я, -о́е. Даволі разумны.

**НЕЖАДА́ННЕ**, -я, *н.* Адсутнасць жадання; ухіленне ад чаго-н. *Н. адпраўляцца ў паход.*

**НЕЖАДА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Непадыходзячы, такі, які не апраўдвае спадзяванняў. *Нежаданая кандыдатура.* **2.** Непрыемны, шкодны. *Хвароба выклікала нежаданыя ўскладненні.* ‖ *наз.* **нежада́насць**, -і, *ж.*

**НЕЖЫВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Пазбаўлены адзнак жыцця, мёртвы. **2.** Які не адносіцца да жывёльнага ці расліннага свету; неарганічны. *Нежывая прырода.* **3.** *перан.* Вялы, пазбаўлены жыццёвых сіл, энергіі. *Н. погляд.* **4.** *перан.* Цьмяны, бледны (пра святло, колер і пад.). *Нежывое святло.*

**НЕЖЫЛЫ́**, -а́я, -о́е. Такі, у якім не жывуць, не прыстасаваны для жылля. *Нежылыя пакоі.*

**НЕЗАБУ́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Травяністая расліна сямейства бурачнікавых з дробнымі блакітнымі кветкамі. ‖ *прым.* **незабу́дкавы**, -ая, -ае.

**НЕЗАБЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Такі, што нельга забыць. *Незабыўная сустрэча.* ‖ *наз.* **незабы́ўнасць**, -і, *ж.*

**НЕЗАДАВАЛЬНЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Адмаўленне ў чым-н. *Н. просьбы.* **2.** Тое, што і *нездавальненне. Адчуваць н.*

**НЕЗАДАВО́ЛЕНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *нездаволены.*

**НЕЗАДА́ЧЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Нешчаслівы, няўдачлівы. *Н. дзень.* ‖ *наз.* **незада́члівасць**, -і, *ж.*

**НЕЗАДО́ЎГА**, *прысл., да чаго* або *перад чым.* Не за многа часу да чаго-н., перад чым-н. *Н. да юбілею. Н. перад вайной.*

**НЕЗАЙЗДРО́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не адчувае зайздрасці да каго-н. *Н. чалавек.* **2.** Дрэнны, няважны, які не выклікае зайздрасці. *Незайздросная хатка.* ‖ *наз.* **незайздро́снасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**НЕЗАКОННАНАРО́ДЖАНЫ**, -ая, -ае. Народжаны ад бацькоў, якія не былі ў законным шлюбе; пазашлюбны. *Незаконнанароджанае дзіця.*

**НЕЗАЛЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не залежыць ад каго-, чаго-н.; самастойны, свабодны. *Н. эксперт. Н. чалавек.* **2.** Які выражае самастойнасць у чым-н. *Незалежныя думкі. Трымаць сябе незалежна* (прысл.). **3.** Самастойны ў міжнародных адносінах; суверэнны. *Незалежная дзяржава.* ‖ *наз.* **незале́жнасць**, -і, *ж.*

**НЕЗАЛЮБІ́ЦЬ**, -люблю́, -лю́біш, -лю́біць; *зак., каго-чаго, з дадан.* і *без дап.* Выказаць незадаволенасць, не спадабацца. *Ён вельмі незалюбіў, калі напомнілі пра мінулы ўчынак.*

**НЕЗАМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Такі, якога цяжка або нельга замяніць, вельмі патрэбны. *Н. спецыяліст.* ‖ *наз.* **незаме́ннасць**, -і, *ж.*

**НЕЗАПА́МЯТНЫ** -ая, -ае. Вельмі даўні, аддалены ў часе. *З незапамятных часоў.*

**НЕЗАПЛЯ́МЛЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае плям, чысты. *Незаплямленая вопратка.* **2.** *перан.* Неабясслаўлены, нічым не зганьбаваны. *Незаплямленая рэпутацыя.* ‖ *наз.* **незапля́мленасць**, -і, *ж.*

**НЕЗВАРО́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не вернецца, не паўторыцца. *Незваротная маладосць.* **2.** Такі, які не можа развівацца ў адваротным напрамку. *Н. працэс.* ‖ *наз.* **незваро́тнасць**, -і, *ж.*

**НЕЗВЫЧА́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вылучаецца сярод іншых; выключны; надзвычайны. *Незвычайная прыгажосць.* **2.** Не такі, як звычайна, як заўсёды; асаблівы. *Н. дзень.* **3.** Такі, да якога яшчэ не прывыклі; непрывычны. *Незвычайныя ўмовы.* ‖ *наз.* **незвыча́йнасць**, -і, *ж.*

**НЕЗГАРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Зроблены з вогнетрывалага матэрыялу. *Незгаральная шафа.*

**НЕЗГАСА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *нязгасны.* ‖ *наз.* **незгаса́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕЗДАВАЛЬНЕ́ННЕ**, -я, *н.* Пачуццё непрыязнасці, неадабрэння ў адносінах да каго-, чаго-н. *Выказаць сваё н.*

**НЕЗДАВАЛЬНЯ́ЮЧЫ**, -ая, -ае. Дрэнны, які не адпавядае пэўным патрабаванням. *Н. адказ. Нездавальняючыя веды. Адказаў ён нездавальняюча* (прысл.).

**НЕЗДАВО́ЛЕНЫ**, -ая, -ае. Які адчувае або выказвае пачуццё нездавальнення. *Н. выраз твару.* ‖ *наз.* **нездаво́ленасць**, -і, *ж.*

**НЕЗДАРМА́**, *прысл.* (разм.). Не без падстаў, не без прычыны. *Н. адбылася гэта размова.*

**НЕЗДАРО́ВІЦЦА**, -віцца; *безас., незак., каму.* Пра адчуванне недамагання. *З раніцы штосьці нездаровіцца.*

**НЕЗДАРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Хворы; выкліканы хваробай. *Н. колер твару.* **2.** Шкодны для здароўя. *Н. клімат.* **3.** *перан.* Шкодны ў грамадскіх і маральных адносінах. *Нездаровыя абставіны.*

**НЕЗДАРО́ЎЕ**, -я, *н.* Хваравіты стан, недамаганне. *Не з'явіўся з прычыны нездароўя.*

**НЕЗДЗЯЙСНЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які не можа быць ажыццёўлены, выкананы. *Н. план.* ‖ *наз.* **нездзяйсня́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕЗЛАСЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які не выяўляе злосці; уласцівы дабрадушнаму чалавеку. ‖ *наз.* **незласлі́васць**, -і, *ж.*

**НЕЗЛІЧО́НЫ**, -ая, -ае. Такі, які цяжка або немагчыма палічыць; непамерны па колькасці. *Незлічоныя галасы птушак. Незлічонае багацце.* ‖ *наз.* **незлічо́насць**, -і, *ж.*

**НЕЗМАЎКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які не змаўкае працяглы час. *Н. шум прыбою.* ‖ *наз.* **незмаўка́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕЗНАЕ́МЕЦ**, -мца, *мн.* -мцы, -мцаў, *м.* Незнаёмы, невядомы чалавек. *Таямнічы н.* ‖ *ж.* **незнаёмка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак.

**НЕЗНАРО́К**, *прысл.* Выпадкова, ненаўмысна. *Здарылася гэта н.*

**НЕЗРАЗУМЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які цяжка, немагчыма зразумець. *Незразумелыя словы.* **2.** Загадкавы, дзіўны. *Незразумелая трывога.* ‖ *наз.* **незразуме́ласць**, -і, *ж.*

**НЕЗЯМНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які знаходзіцца па-за межамі Зямлі (у 1 знач.). *Метэарыты — незямныя целы.* **2.** *перан.* Узвышаны, незвычайны; ідэальны (высок.). *Незямное каханне.*

**НЕЙК**, *прысл.* Тое, што і *неяк.*

**НЕ́ЙКІ**, -ая, -ае, *займ. неазнач.* **1.** Невядома які, незнаёмы. *Н. прыезджы цябе чакае.* **2.** Пры параўнанні якіх-н. якасцей, адзнак. *Ён сапраўды н. дзівак.* **3.** Тое, што і *які-небудзь* (разм.). *Нейкая пастанова павінна быць прынята.* **4.** Які не заслугоўвае

ні ўвагі, ні павагі. *Н. блазнюк бярэцца ўсіх павучаць.* **5.** Не вызначаны дакладна (пра час, тэрмін, колькасць чаго-н.). *Н. час сябры ішлі моўчкі.*

**НЕЙЛО́Н**, -у, *м.* Сінтэтычнае штучнае валакно, а таксама тканіна з такога валакна. ‖ *прым.* **нейло́навы**, -ая, -ае.

**НЕЙМАВЕ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Вельмі вялікі, надзвычайны. *Н. мароз.* **2.** Такі, які цяжка сабе ўявіць; немагчымы. *Неймаверныя ўмовы.* **3.** Непраўдападобны. *Н. выпадак.* ‖ *наз.* **неймаве́рнасць**, -і, *ж.*

**НЕЙРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да нервовых клетак, нервовай сістэмы, да нерваў (у 1 знач.), напр.: *нейравірусны, нейрагенетыка, нейраэпітэлій, нейраанатомія, нейрапсіхалогія, нейрасакрэцыя, нейрафізіялогія, нейрахірургія.*

**НЕЙРАХІРУ́РГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па нейрахірургіі.

**НЕЙРАХІРУРГІ́Я**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які займаецца захворваннямі нервовай сістэмы і іх хірургічным лячэннем. ‖ *прым.* **нейрахірургі́чны**, -ая, -ае.

**НЕЙРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Нервовая клетка, здольная выпрацоўваць нервовыя імпульсы і перадаваць іх іншым клеткам.

**НЕЙТРАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць (рабіць) нейтральным (у 1 і 2 знач.). **2.** *перан., што.* Аслабіць (аслабляць) чый-н. уплыў, уздзеянне. *Н. уплыў.* **3.** *што.* Правесці (праводзіць) нейтралізацыю (у 3 знач.; спец.). *Н. раствор.* ‖ *наз.* **нейтраліза́цыя**, -і, *ж.*

**НЕЙТРАЛІТЭ́Т**, -у, *М* -тэ́це, *м.* **1.** Міжнародна-прававое становішча дзяржавы, якая не прымае ўдзелу ў вайне, што вядзецца паміж іншымі краінамі, і захоўвае з імі мірныя адносіны, не ўваходзіць у ваенна-палітычныя блокі. *Захоўваць н.* **2.** *перан.* Неўмяшанне ў чужыя спрэчкі, у барацьбу паміж двума бакамі. ○ **Пастаянны нейтралітэт** — знешнепалітычны курс шэрагу дзяржаў, якія ўзялі абавязацельства не прымаць удзелу ў вайне, захоўваючы права на самаабарону, а ў мірны час праводзіць міралюбівую знешнюю палітыку.

**НЕЙТРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які захоўвае нейтралітэт у адносінах да дзяржаў, што ваююць. *Нейтральная краіна.* **2.** *перан.* Які не становіцца на чый-н. бок (у палітычнай барацьбе, спрэчках і пад.). *Заняць нейтральную пазіцыю.* **3.** Які не дае ні шчолачнай, ні кіслай рэакцыі (спец.). *Н. раствор.* **4.** Які не нясе ні адмоўнага, ні дадатнага зараду (спец.). *Нейтрон з'яўляецца нейтральнай, незараджанай часціцай.* ○ **Нейтральная зона (паласа), нейтральныя воды** — такія, на якіх, згодна з пагадненнем, не павінны весціся ваенныя дзеянні, размяшчацца ваенныя сілы. ‖ *наз.* **нейтра́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕЙТРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Электрычна нейтральная элементарная часціца, якая разам з пратонам уваходзіць у склад атамнага ядра. ‖ *прым.* **нейтро́нны**, -ая, -ае.

**НЕЙТРЫ́НА**, *нескл., н.* (спец.). Стабільная электрычна нейтральная элементарная часціца з масай, роўнай ці блізкай да нуля. ‖ *прым.* **нейтры́нны**, -ая, -ае.

**НЕ́ЙЧЫ**, не́йчага, не́йчаму, не́йчы (не́йчага), не́йчым, аб не́йчым, *м.;* не́йчая, не́йчай, не́йчую, *ж.*; не́йчае, не́йчага, не́йчае, не́йчым, аб не́йчым, *н.; мн.* не́йчыя; *займ. неазнач.* Невядома чый, чыйсьці.

**НЕ́КАГА**, не́каму, не́кага, не́кім, не́ аб кім; *займ.* **1.** *адмоўны, з інф.* Няма нікога, каб... *Некаму адправіць пісьмо.* **2.** *неазнач., з Р* (ад займенніка «нехта»). Кагосьці. *Тут некага не хапае.*

**НЕ́КАЛІ**[1], *безас., у знач. вык.* Няма калі, няма часу. *Н. адпачываць.*

**НЕ́КАЛІ**[2], *прысл.* **1.** Калісьці, даўно; у далёкім мінулым. *Н. тут працякала Няміга.* **2.** Калі-небудзь у будучым. *Н. тут вырасце сад.*

**НЕ́КАЛЬКІ**, -іх, *ліч. неазнач.-кольк.* Некаторая, няпэўная, невялікая колькасць. *Н. месяцаў.*

**НЕКАТО́РЫ**, -ая, -ае; *займ. неазнач.* **1.** Нейкі, дакладна не вызначаны. *Праз н. час.* **2.** толькі *мн.* **некато́рыя**, -ых. Асобныя з агульнага ліку; паасобныя. *У некаторых вёсках.* **3.** *у знач. наз.* **некато́рыя**, -ых. Не ўсе, асобныя людзі. *Некаторыя з прысутных.*

**НЕКРАЛО́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Афіцыйнае паведамленне ў сувязі са смерцю каго-н. з кароткай характарыстыкай яго жыцця і дзейнасці. ‖ *прым.* **некралагі́чны**, -ая, -ае.

**НЕКРО́ПАЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Могілкі, на якіх пахаваны славутыя людзі.

**НЕКТА́Р**, -у, *м.* **1.** У грэчаскай міфалогіі: напітак багоў, які даваў ім бяссмерце і вечную маладосць. *Жыватворны н.* **2.** Салодкі сок, які выдзяляецца кветкамі меданосных раслін. *Пчолы збіраюць н.* ‖ *прым.* **некта́рны**, -ая, -ае.

**НЕ́КУДЫ. 1.** *прысл.* Кудысьці, невядома куды. *Н. ж вядзе гэта сцежка.* **2.** *безас., у знач. вык., з інф.* Няма месца (куды б можна было адправіцца, змясціць каго-, што-н.). *Ехаць н. Далей ісці н.* ◊ **Далей некуды** (разм.) — горш не можа быць.

**НЕЛАДЫ́**, -о́ў (разм.). **1.** Кепскія ўзаемаадносіны, непаразуменні паміж кім-н.; сваркі. *Н. між братамі.* **2.** Няўдачы; непаладкі. *Н. на прадпрыемстве.*

**НЕЛАСКА́ВАСЦЬ** *гл.* няласкавы.

**НЕЛАСКА́ВЫ** *гл.* няласкавы.

**НЕЛЕГА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў (разм.). Пра чалавека, які вядзе нелегальны лад жыцця або займаецца нелегальнай дзейнасцю.

**НЕЛЕГА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Не дазволены законам, падпольны. *Нелегальная літаратура. Нелегальнае становішча.* ‖ *наз.* **нелега́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕЛІКВІ́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Маёмасць, якая не можа быць выкарыстана на дадзеным прадпрыемстве і падлягае ліквідацыі або продажу. *Распрадажа неліквідаў.* ‖ *прым.* **нелікві́дны**, -ая, -ае. *Н. фонд.*

**НЕ́ЛЬГА**, *безас., у знач. вык., з інф.* **1.** Немагчыма, няма магчымасці. *Без дружбы жыць н. Яе н. пазнаць.* **2.** Забаронена, не дазваляецца. *Па газонах хадзіць н.*

**НЕ́ЛЬМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Буйная пауночная рыба сямейства ласосевых. ‖ *прым.* **не́льмавы**, -ая, -ае.

**НЕЛЮБО́Ў**, -бві́ і -бо́ві, *ж.* Непрыязнасць, непрыхільнасць. *Даўняя н.*

**НЕ́ЛЮДЗЕНЬ**, -дня, *мн.* -дні, -дняў, *м.* (разм.). Тое, што і *нелюдзь* (у 1 знач.).

**НЕЛЮДЗІ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Нелюдзімы чалавек. **2.** *мн.* Вылюдкі, ворагі, звяры. ‖ *ж.* **нелюдзі́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак (да 1 знач.).

**НЕЛЮДЗІ́МЫ**, -ая, -ае. **1.** Пануры, дзікліві, які пазбягае людзей, аддае перавагу адзіноце. *Н. чалавек.* **2.** Бязлюдны, пустынны. *Н. лес.* ‖ *наз.* **нелюдзі́масць**, -і, *ж.*

**НЕ́ЛЮДЗЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Нелюдзімы, пануры чалавек. **2.** пераважна *мн.* Вылюдкі, перараджэнцы, звяры. *Няўжо мы нелюдзі нейкія?*

**НЕ́МА**, *прысл.* **1.** Дзіка, роспачна (крычаць, галасіць, раўці і пад.). **2.** Моўчкі, без слоў. *Цётка н. енчыла.*

**НЕМАВЕ́ДАМА**, *прысл.* (у спалучэнні са словамі «што», «як», «адкуль», «куды» і пад.). Невядома, незразумела. *Заехаць н. куды.*

**НЕМАГЧЫ́МА**, *безас., у знач. вык.* Няма магчымасці, нельга. *Н. ўбачыць зацьменне.*

**НЕМАГЧЫ́МЫ**, -ая, -ае. **1.** Неажыццявімы, невыканальны. *Няма нічога немагчымага* (наз.). **2.** *перан.* Такі, што нельга выцерпець, вынесці; нясцерпны. *Немагчымая духата.* ‖ *наз.* **немагчы́масць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**НЕМАЖЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *немагчымы* (у 1 знач.). ‖ *наз.* **немажлі́васць**, -і, *ж.*

**НЕМАЛАВА́ЖНЫ**, -ая, -ае. Даволі важны, істотны. *Немалаважныя падзеі.* ‖ *наз.* **немалава́жнасць**, -і, *ж.*

**НЕМАЛЫ́**, -а́я, -о́е. Даволі вялікі, значны па велічыні, памерах, колькасці. *Немалыя грошы. Н. шлях. Пражыць нямала* (прысл.).

**НЕ́МАРАЧ**, -ы, *ж.* (разм.). Глухое месца; цемра. *Такая н., хоць вока выкалі.*

**НЕМАТА́**, -ы́, *ДМ* -маце́, *ж.* **1.** Адсутнасць дару мовы. *Прыроджаная н.* **2.** *перан.* Нямая цішыня. *Вячэрняя н.* **3.** *перан.* Бяспраўе, прыгнечанасць. *Векавая н. і адсталасць.*

**НЕМАЎЛЯ́**, -я́ці, *мн.* -ля́ты, -ля́т, *н.* Малое дзіця. ‖ *ласк.* **немаўля́тка**, -а, *мн.* -і, -так, *н.*

**НЕ́МАЧ**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Недамаганне, слабасць, хвароба. *Забывацца на сваю н.*

**2.** Гора, няшчасце. ◊ **Каб на яго (яе, іх, цябе, вас) немач; няхай яго (яе, іх, цябе, вас) немач** (разм., груб.) — праклён са знач. «чорт яго (яе, іх, цябе, вас) бяры».

**НЕМЕТА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Хімічна простае рэчыва, якое не належыць да металаў.

**НЕ́МЕЦ**[1] *гл.* немцы.

**НЕ́МЕЦ**[2], -мца, *мн.* -мцы, -мцаў, *м.* (разм.). Нямы мужчына.

**НЕМІЛАСЭ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Бязлітасны, суровы. *Н. чалавек.* **2.** *перан.* Вельмі моцны, незвычайны (пра што-н. непрыемнае, адмоўнае; разм.). *Неміласэрная гарачыня.* ‖ *наз.* **неміласэ́рнасць**, -і, *ж.*

**НЕМІНУ́ЧЫ**, -ая, -ае. Такі, якога нельга мінуць; непазбежны. *Немінучая гібель.* ‖ *наз.* **неміну́часць**, -і, *ж.*

**НЕМУДРАГЕ́ЛІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). Самы звычайны, просты; прымітыўны. *Н. інструмент.* ‖ *наз.* **немудрагеі́лістасць**, -і, *ж.*

**НЕ́МЦЫ**, -аў, *адз.* не́мец, -мца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Германіі. ‖ *ж.* **не́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак. ‖ *прым.* **няме́цкі**, -ая, -ае.

**НЕ́МЫ**, -ая, -ае. Жудасны, страшэнны, дзікі, роспачны. *Н. крык.* ◊ **Немым голасам** (разм.) — вельмі моцна, што ёсць сілы (крычаць, плакаць).

**НЕНАВІ́ДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак., каго-што.* Адносіцца з нянавісцю да каго-, чаго-н. *Н. ворага.*

**НЕНАВІ́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які ненавідзіць каго-, што-н., жадае зла. ‖ *ж.* **ненаві́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **ненаві́сніцкі**, -ая, -ае.

**НЕНАВІ́СНЫ**, -ая, -ае. Які выклікае нянавісць, агіду. *Н. вораг.* ‖ *наз.* **ненаві́снасць**, -і, *ж.*

**НЕНАГЛЯ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Каханы, самы дарагі. *Сустрэць ненаглядную* (наз.). *Н. сынок.* **2.** Вельмі прыгожы, ад якога нельга адарваць вачэй. *Ненаглядныя сінія далі.*

**НЕНАДО́ЎГА**, *прысл.* На кароткі час. *Паехаць н.*

**НЕНАЖЭ́РНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Такі, якога цяжка накарміць; пражэрлівы. *Н. шчупак.* **2.** *перан.* Які не можа здаволіцца тым, што мае; прагны да чужога. *Н. характар.* ‖ *наз.* **ненажэ́рнасць**, -і, *ж.*

**НЕНАПАДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* Адмаўленне дагаворных бакоў ад якіх-н. варожых дзеянняў у адносінах паміж сабой. *Дагавор аб ненападзенні.*

**НЕНАРМА́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* ненармальны. **2.** *мн.* -і, -ей. Ненармальная з'ява. *Ненармальнасці ў рабоце.*

**НЕНАРМА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адхіленні ад нормы. *Н. крывяны ціск.* **2.** Душэўнахворы; псіхічна неўраўнаважаны (разм.). ‖ *наз.* **ненарма́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕНАСЫ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, якога цяжка накарміць; прагны да яды. *Н. звер.* **2.** *перан.* Які не можа здаволіцца тым, што мае. *Ненасытная цяга да ведаў.* ‖ *наз.* **ненасы́тнасць**, -і, *ж.*

**НЕНАТО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, што цяжка наталіць. *Ненатольная смага.* ‖ *наз.* **ненато́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕ́НЦЫ**, -аў, *адз.* не́нец, -нца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Ненецкай, Ямала-Ненецкай і Таймырскай аўтаномных акруг, якія ўваходзяць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **не́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **не́нецкі**, -ая, -ае.

**НЕО́Н**, -у, *м.* Хімічны элемент, інертны газ без колеру і паху, які выкарыстоўваецца для напаўнення электрычных лямпачак, у сігнальных, рэкламных і пад. асвятляльных прыладах. ‖ *прым.* **нео́навы**, -ая, -ае. *Неонавая лямпа. Неонавае святло.*

**НЕПАВА́ГА**, -і, *ДМ* -ва́зе, *ж.* Адсутнасць павагі да каго-, чаго-н.; непачцівасць. *Н. да старэйшых.*

**НЕПАВАРО́ТЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Павольны, марудны, няспрытны ў рухах. *Непаваротлівае дзіця.* **2.** *перан.* Някемлівы, нерухавы (у справах). *Н. розум.* ‖ *наз.* **непаваро́тлівасць**, -і, *ж.*

**НЕ́ПАГАДЗЬ**, -і, *Т* -ддзю, *ж.* (разм.). Зацяжная непагода. *Асенняя н.*

**НЕПАГА́СНЫ**, -ая, -ае (высок.). Такі, што не гасне, якога нельга пагасіць. *Непагасныя зоры.*

**НЕПАГО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Дрэннае, з дажджом або снегам, надвор'е.

**НЕПАДАЛЁК**, *прысл.* і *прыназ.* Тое, што і *непадалёку.*

**НЕПАДАЛЁКУ**, *прысл.* і *прыназ.* **1.** *прысл.* На нязначнай адлегласці; паблізу. *Н. працякала рэчка.* **2.** *прыназ. з Р.* Ужыв. для ўказання на прадмет ці месца, паблізу якіх хто-, што-н. знаходзіцца або што-н. адбываецца. *Н. свайго дома.*

**НЕПАДА́ТЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не паддаецца або з цяжкасцю паддаецца якому-н. уздзеянню. *Н. матэрыял.* **2.** Няўступчывы, упарты. *Н. характар.* ‖ *наз.* **непада́тлівасць**, -і, *ж.*

**НЕПАДЗЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не паддаецца падзелу, драбленню, распаду на часткі. *Непадзельныя словазлучэнні.* **2.** Які не падлягае падзелу, знаходзіцца ў агульным валоданні. *Н. фонд.* **3.** Якога не дзеляць ні з кім; поўны, абсалютны. *Непадзельная ўлада.* **4.** У матэматыцы: які не дзеліцца без астачы. *Н. лік.* ‖ *наз.* **непадзе́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАДКУ́ПНЫ**, -ая, -ае. Такі, якога нельга падкупіць; сумленны. *Н. чалавек.* ‖ *наз.* **непадку́пнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАДРО́БЛЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Сапраўдны. *Н. дакумент.* **2.** Шчыры, непрытворны; натуральны. *Непадробленая радасць.* ‖ *наз.* **непадро́бленасць**, -і, *ж.*

**НЕПАДРО́БНЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *непадроблены* (у 2 знач.). ‖ *наз.* **непадро́бнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАДСТУ́ПНЫ**, -ая, -ае. Такі, да якога нельга звярнуцца з просьбай, пытаннем; ганарысты, фанабэрысты. ‖ *наз.* **непадсту́пнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАЖАДА́НЫ**, -ая, -ае. Такі, якога не жадаюць, які не адпавядае чым-н. жаданням, інтарэсам. *Непажаданая кандыдатура. Спазняцца на працу непажадана* (прысл.). ‖ *наз.* **непажада́насць**, -і, *ж.*

**НЕПАЗБЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Такі, якога нельга пазбегнуць; немінучы. *Непазбежная сустрэча. Н. фінал.*| | *наз.* **непазбе́жнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАЗБЫЎНЫ**, -ая, -ае (разм.). Такі, які не праходзіць, ад якога цяжка пазбавіцца. *Непазбыўная туга.* ‖ *наз.* **непазбы́ўнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАЗНАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які змяніўся настолькі, што яго цяжка пазнаць. *Непазнавальная вёска.* **2.** Недаступны пазнанню. *У свеце няма нічога непазнавальнага.* ‖ *наз.* **непазнава́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАЗНА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які яшчэ не вывучаны. *Непазнаныя стыхійныя сілы.* **2.** Такі, якога не пазналі, не апазналі. ‖ *наз.* **непазна́насць**, -і, *ж.*

**НЕПАКО́ІЦЦА**, -ко́юся, -ко́ішся, -ко́іцца; *незак.* **1.** Адчуваць неспакой, трывогу; хвалявацца. *Н. перад дакладам.* **2.** Праяўляць клопат, турбавацца. *Н. за сына.*

**НЕПАКО́ІЦЬ**, -ко́ю, -ко́іш, -ко́іць; *незак., каго.* **1.** Выклікаць непакой, трывогу, хваляванне. *Навіна непакоіла яго.* **2.** Турбаваць каго-н.; прычыняць боль. *Асколак непакоіў раненага.*

**НЕПАКО́Й**, -ю, *м.* **1.** Стан душэўнай трывогі, хвалявання, выкліканы чым-н. *Н. за лёс разведчыкаў.* **2.** Турботы, клопаты. *Н. за дзяцей.*

**НЕПАКО́РА**, -ы, **1.** *ж.* Непакорнасць, непадуладнасць каму-н. *Дух непакоры.* **2.** -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -ко́р *і* -аў. Такі, якога немагчыма скарыць. **3.** -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -ко́р *і* -аў. Упарты чалавек; неслух.

**НЕПАКО́РЛІВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *непакорны.* ‖ *наз.* **непако́рлівасць**, -і, *ж.*

**НЕПАКО́РНЫ**, -ая, -ае. Які не хоча пакарацца, быць падуладным каму-н.; непаслухмяны. *Непакорная натура.* ‖ *наз.* **непако́рнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАЛА́ДКІ**, -дак *і* -дкаў, *адз.* -дка, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* **1.** Адсутнасць наладжанасці; недахопы ў рабоце чаго-н. *Ліквідаваць н. ў рабоце машыны.* **2.** Непаразуменні, сваркі, нелады. *Сямейныя н.*

**НЕПАМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які не паддаецца вымярэнню; вельмі вялікі, празмерны. *Непамерныя расходы.* ‖ *наз.* **непаме́рнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАНА́ДНА**. У выразе: **каб непанадна было** (разм.) — каб адвучыць, каб не было прывычкі да чаго-н. дрэннага.

**НЕПАПРА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Такі, які немагчыма або цяжка паправіць. *Непапраўная памылка. Здарылася непапраўнае* (наз.). ‖ *наз.* **непапра́ўнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАРА́ДАК**, -дку, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* Беспарадак, адсутнасць або парушэнне парадку. *У пакоі панаваў н.*

**НЕПАРАЗУМЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Няправільнае або недастатковае разуменне чаго-н. *Атрымалася н.* **2.** Адсутнасць узаемнага разумення. *Н. паміж сяброўкамі.*

**НЕПАРТЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які не з'яўляецца членам ніякай партыі; беспартыйны. ‖ *наз.* **непарты́йнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАРУ́ШНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, якога нельга парушыць, моцны. *Непарушная дружба.* **2.** Які захоўваецца ў цэласці, не падлягае расходаванню. *Н. запас вады.* ‖ *наз.* **непару́шнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАРЫЎ́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які не паддаецца раз'яднанню на часткі; суцэльны. *Непарыўныя звёны ланцуга.* **2.** Такі, якога нельга раз'яднаць; непарушны. *Непарыўная дружба.* ‖ *наз.* **непарыўнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАСЕ́ДА**, -ы, *Д* -у, *Т* -ам, *М* -дзе, *м.; ДМ* -дзе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -се́д *і* -аў (разм.). Непаседлівы чалавек (звычайна пра дзіця).

**НЕПАСЕ́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Вельмі рухавы, мітуслівы, неспакойны. *Непаседлівае дзіця.* ‖ *наз.* **непасе́длівасць**, -і, *ж.*

**НЕПАСЛУШЭ́НСТВА**, -а, *н.* Нежаданне або адмаўленне слухацца, слухаць каго-н. *Пакараць за н.*

**НЕПАСЛЯДО́ЎНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* непаслядоўны. **2.** Непаслядоўны ўчынак, паводзіны і пад.

**НЕПАСЛЯДО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены паслядоўнасці, нелагічны. *Непаслядоўныя дзеянні.* ‖ *наз.* **непаслядо́ўнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАСРЭ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае прамежкавых звёнаў; прамы. *Непасрэдная сувязь.* **2.** Які робіць усё без сумнення, кіруючыся толькі ўнутранымі схільнасцямі; просты, шчыры. *Непасрэдная натура. Паводзіць сябе непасрэдна* (прысл.). ‖ *наз.* **непасрэ́днасць**, -і, *ж.*

**НЕПАСТАЯ́ННЫ**, -ая, -ае. Зменлівы, няўстойлівы. *Непастаяннае надвор'е. Непастаянная натура.* ‖ *наз.* **непастая́нства**, -а, *н.*

**НЕПАЎНАЛЕ́ТНІ**, -яя, -яе. Які не дасягнуў паўналецця. *Н. юнак. У залу ўвайшлі непаўналетнія* (наз.).

**НЕПАЎНАЛЕ́ЦЦЕ**, -я, *н.* Узрост чалавека, які не дасягнуў паўналецця.

**НЕПАЎТО́РНЫ**, -ая, -ае. Адзіны ў сваім родзе; выключны, асаблівы. *Н. выгляд.* ‖ *наз.* **непаўто́рнасць**, -і, *ж.*

**НЕПАХІ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, што нельга пахіснуць; устойлівы. *Стаяць непахісна* (прысл.). **2.** Цвёрды, стойкі (у сваіх намерах, перакананнях і пад.). *Н. змагар.* ‖ *наз.* **непахі́снасць**, -і, *ж.*

**НЕПАЧА́ТЫ**, -ая, -ае. Такі, якога яшчэ не пачыналі, за які яшчэ не браліся; цэлы. *Непачатая буханка.* ◊ **Непачаты край** (работы, спраў; разм.) — вельмі многа.

**НЕПАЧЦІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да людзей без павагі; недалікатны. *Н. мужчына.* ‖ *наз.* **непачці́васць**, -і, *ж.*

**НЕПАША́НА**, -ы, *ж.* Непачцівыя адносіны да каго-н. *Н. да старэйшых.*

**НЕПЕРААДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, што немагчыма адолець. *Непераадольная перашкода.* ‖ *наз.* **непераадо́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕПЕРАКЛАДА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які нельга дакладна перакласці на іншую мову. *Неперакладальнае словазлучэнне.* ‖ *наз.* **непераклада́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕПЕРАКЛАДНЫ́**, -а́я, -о́е. Тое, што і неперакладальны. *Н. зварот.*

**НЕПЕРАМО́ЖНЫ**, -ая, -ае. Такі, якога нельга перамагчы. *Непер598можная сіла.* ‖ *наз.* **неперамо́жнасць**, -і, *ж.*

**НЕПЕРАЎЗЫ́ДЗЕНЫ**, -ая, -ае. Такі, што нельга пераўзысці, зрабіць лепш. *Н. твор мастацтва.* ‖ *наз.* **неперераўзы́дзенасць**, -і, *ж.*

**НЕПЕРАХО́ДНЫ**, -ая, -ае. У граматыцы: пра дзеяслоў, які не патрабуе пасля сябе прамога дапаўнення ў форме вінавальнага склону без прыназоўніка са знач. аб'екта. ‖ *наз.* **неперахо́днасць**, -і, *ж.*

**НЕПІСЬМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не ўмее чытаць і пісаць. *Н. чалавек.* **2.** *перан.* Які не мае адпаведных ведаў у якой-н. галіне, недасведчаны ў чым-н. *Н. рэцэнзент.* **3.** Які выкананы без належнага ведання справы, з памылкамі. *Н. чарцёж.* ‖ *наз.* **непісьме́ннасць**, -і, *ж.*

**НЕПЛАЦЁЖ**, -цяжу́, *мн.* -цяжы́, -цяжо́ў, *м.* Неўнясенне ў тэрмін грошай, якія падлягаюць выплаце паводле адпаведных абавязацельстваў; нявыплата.

**НЕПЛАЦЕ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба або прадпрыемства, якія не ўносяць у тэрмін належных плацяжоў. ‖ *ж.* **неплаце́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**НЕПРАБУ́ДНЫ**, -ая, -ае. Беспрабудны, вельмі моцны (пра сон). *Н. сон.* ‖ *наз.* **непрабу́днасць**, -і, *ж.*

**НЕПРАГЛЯ́ДНЫ**, -ая, -ае. Такі цёмны або густы, што нічога нельга разгледзець. *Непраглядная ноч.* ‖ *наз.* **непрагля́днасць**, -і, *ж.*

**НЕПРАДБА́ЧАНЫ**, -ая, -ае. Такі, якога нельга было прадбачаць; нечаканы. *Н. выпадак.* ‖ *наз.* **непрадба́чанасць**, -і, *ж.*

**НЕПРАДБА́ЧЛІВЫ**, -ая, -ае. Які не прадбачыць магчымых вынікаў; недальнабачны. *Н. чалавек.* ‖ *наз.* **непрадба́члівасць**, -і, *ж.*

**НЕПРАДУКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. У граматыцы: такі, пры дапамозе якога не ўтвараюцца новыя словы. *Непрадуктыўныя суфіксы.* ‖ *наз.* **непрадукты́ўнасць**, -і, *ж.*

**НЕПРАДУКЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які траціцца дарма, без карысці, не дае патрэбных вынікаў. *Непрадукцыйная праца.* **2.** Які не дае прыбытку; нерэнтабельны. *Непрадукцыйная гаспадарка.* ‖ *наз.* **непрадукцы́йнасць**, -і, *ж.*

**НЕПРАЛА́ЗНЫ**, -ая, -ае (разм.). Такі, праз які немагчыма або цяжка прайсці, прабрацца. *Непралазная багна.* ‖ *наз.* **непрала́знасць**, -і, *ж.*

**НЕПРАМАКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які не прапускае або амаль не прапускае вільгаці. *Н. плашч.* ‖ *наз.* **непрамака́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕПРАНІКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Праз які не пранікаюць вада, газы, гукі і пад. *Непранікальная перагародка.* **2.** *перан.* Недаступны разуменню, скрыты. *Непранікальная тайна.* ‖ *наз.* **непраніка́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕПРАХО́ДНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* непраходны. **2.** Няздольнасць прапускаць што-н. (аб органах чалавека або жывёлы; спец.). *Н. кішэчніка.*

**НЕПРАХО́ДНЫ**, -ая, -ае. Праз які немагчыма або цяжка прабрацца, прайсці. *Н. гушчар.* ‖ *наз.* **непрахо́днасць**, -і, *ж.*

**НЕПРАЦАЗДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Няздольны да працы (па ўзросце, хваробе і пад.). *Н. інвалід.* ‖ *наз.* **непрацаздо́льнасць**, -і, *ж. Часовая н.*

**НЕПРАЦІЎЛЕ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Прыхільнік непраціўлення. ‖ *ж.* **непраціўле́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак (разм.). ‖ *прым.* **непраціўле́нскі**, -ая, -ае.

**НЕПРАЦІЎЛЕННЕ**, -я *і* **НЕПРАЦІЎЛЕ́НСТВА**, -а, *н.* Адказ ад актыўнай барацьбы са злом, проціпастаўленне яму пакорлівасці, пасіўнасці. *Непраціўленне злу.* ‖ *прым.* **непраціўле́нскі**, -ая, -ае.

**НЕПРЫВЫ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* Адсутнасць прывычкі да каго-, чаго-н. *З непрывычкі стаміўся.*

**НЕПРЫГО́ДНЫ**, -ая, -ае. Нягодны для выкарыстання. *Н. матэрыял.* ‖ *наз.* **непрыго́днасць**, -і, *ж.*

**НЕПРЫГО́ЖЫ**, -ая, -ае. **1.** Пазбаўлены прыгажосці. *Н. твар. Н. голас.* **2.** Заганны, несумленны, нядобры. *Н. ўчынак.* ‖ *наз.* **непрыго́жасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**НЕПРЫДА́ТНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і непрыгодны. ‖ *наз.* **непрыда́тнасць**, -і, *ж.*

**НЕПРЫЕ́МНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* непрыемны. **2.** *мн.* -і, -ей. Непрыемнае здарэнне, паведамленне. *Непрыемнасці на рабоце.*

**НЕПРЫЕ́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не падабаецца сваімі якасцямі, уласцівасцямі і пад. *Н. пах.* **2.** Які выклікае нездавальненне, хваляванне, парушае спакой. *Непрыемная сустрэча.* ‖ *наз.* **непрые́мнасць**, -і, *ж.*

**НЕПРЫКА́ЯНЫ**, -ая, -ае (разм.). Які ад хвалявання не знаходзіць сабе месца, не ведае, што рабіць. *Ходзіць па хаце як н.* ‖ *наз.* **непрыка́янасць**, -і, *ж.*

**НЕПРЫКМЕ́ТНЫ** *і* **НЕПРЫМЕ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які цяжка заўважыць, прыкмеціць; нязначны. *Непрыкметная крынічка. Прайсці непрыметна* (прысл.). **2.** Які не вылучаецца сярод іншых. *Н. чалавек.* ‖ *наз.* **непрыкме́тнасць**, -і, *ж. і* **непрыме́тнасць**, -і, *ж.*

**НЕПРЫКРЫ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Не пакрыты зверху. *Працаваць з непрыкрытай галавою.* **2.** *перан.* Які адразу адчуваецца, яўны, відавочны. *Непрыкрытая хлусня.* ‖ *наз.* **непрыкры́тасць**, -і, *ж.*

**НЕПРЫМІРЫ́МЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не дапускае ніякага пагаднення, прымірэння. *Непрымірымая барацьба.* **2.** Такі, што

нельга прымірыць. *Непрымірымыя супярэчнасці.* || *наз.* **непрымірымасць**, -і, *ж.*

**НЕПРЫСТОЙНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* непрыстойны. **2.** *мн.* -і, -ей. Непрыстойны ўчынак, непрыстойныя словы. *Нагаварыць непрыстойнасцей.*

**НЕПРЫСТОЙНЫ**, -ая, -ае. Бессаромны. *Непрыстойныя паводзіны.* || *наз.* **непрыстойнасць**, -і, *ж.*

**НЕПРЫСТУПНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, да якога цяжка або немагчыма наблізіцца, якім цяжка авалодаць. *Непрыступныя скалы. Непрыступная крэпасць.* **2.** Такі, да якога цяжка падступіцца; ганарысты. *Н. начальнік.* || *наз.* **непрыступнасць**, -і, *ж.*

**НЕПРЫТОМНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Страта прытомнасці, выкліканая хваравітым станам або душэўным узрушэннем. *Быць у непрытомнасці.* **2.** Крайняя ступень душэўнага ўзрушэння, пры якой траціцца здольнасць валодаць сабой. *Напалохацца да непрытомнасці.*

**НЕПРЫТОМНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца ў непрытомнасці. **2.** Які знаходзіцца ў стане душэўнага ўзрушэння; узбуджаны. *Усхапілася з пасцелі, як непрытомная.*

**НЕПРЫХІЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Непрыязна настроены; недружалюбны. *Непрыхільныя адносіны.* **2.** Які змяшчае ў сабе або выказвае неадабрэнне. *Н. водзыў.* || *наз.* **непрыхільнасць**, -і, *ж.*

**НЕПРЫЯЗНЫ**, -ая, -ае. Які недружалюбна настроены ў адносінах да каго-, чаго-н.; выражае або праяўляе недружалюбнасць. *Н. чалавек. Н. тон.* || *наз.* **непрыязнасць**, -і, *ж.* *Не хаваць сваёй непрыязнасці да каго-н.*

**НЕПРЫЯЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Чалавек, які варожа адносіцца да каго-, чаго-н. *Нажыць сабе непрыяцеля.* || *ж.* **непрыяцелька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек.

**НЕПРЫЯЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Войскі ворага; праціўнік. || *прым.* **непрыяцельскі**, -ая, -ае.

**НЕРАЗБЯРЫХА**, -і, *ДМ* -рысе, *ж.* (разм.). Заблытанае становішча, адсутнасць парадку, яснасці ў чым-н. *Н. ў вядзенні дакументаў.*

**НЕРАЗДЗЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *непадзельны* (у 2 і 3 знач.). || *наз.* **нераздзельнасць**, -і, *ж.*

**НЕРАЗМЕННЫ**, -ая, -ае. Які нельга размяняць, які не падлягае размену (пра грошы). *Неразменная манета.* || *наз.* **неразменнасць**, -і, *ж.*

**НЕРАЗРЫЎНЫ**, -ая, -ае. Такі, што нельга раз'яднаць; непарыўны, непарушны. *Неразрыўная сувязь.* || *наз.* **неразрыўнасць**, -і, *ж.*

**НЕРАСТ**, -у, *М* -сце, *м.* Працэс адкладання самкамі рыб ікры і аплалнення яе самцамі. || *прым.* **нераставы**, -ая, -ае.

**НЕРАСТАВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -туе; *незак.* Знаходзіцца ў стане нерасту. *Большасць нашых рыб нерастуе вясной.* || *наз.* **нераставанне**, -я, *н.*

**НЕРАСЦІЛІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -лішч *і* -аў, *н.* Месца нерасту рыб.

**НЕРАТ**, -а, *М* -раце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рыбалоўная снасць канічнай формы ў выглядзе сеткавай камеры, нацягнутай на драўляны каркас, з кароткім конусападобным уваходам; верша. *Хлопцы лавілі карасёў нератам.* ◊ **Трапіць у нерат** — знянацку, нечакана апынуцца ў безвыходным становішчы. || *прым.* **нератны**, -ая, -ае.

**НЕРАЎНЯ**, -і, *м.* і *ж.* (разм.). Пра чалавека, няроўнага з іншымі ў якіх-н. адносінах. *Ён ёй н.*

**НЕРАШУЧЫ**, -ая -ае. Пазбаўлены рашучасці, цвёрдасці, поўны ваганняў. *Н. адказ.* || *наз.* **нерашучасць**, -і, *ж.*

**НЕРВ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адзін са шматлікіх пучкоў валокнаў у выглядзе белых канацікаў, якія ідуць ад галаўнога і спіннога мозга да органаў пачуццяў, мышцаў, залоз і інш. і даюць целу магчымасць рухацца і адчуваць. *Зрокавы н.* **2.** *мн.* Уся такая сістэма, якая вызначае дзейнасць арганізма, стан і паводзіны чалавека. *Нервы не вытрымалі.* **3.** *перан.* Цэнтр якой-н. дзейнасці, асноўная дзейная сіла чаго-н. *Нёман быў нервам сяла.* ◊ **Выматаць усе нервы** (разм., неадабр.) — змучыць, давесці да знямогі. **Іграць на нервах** (разм., неадабр.) — гнявіць, нерваваць каго-н. чымн. **Трапаць нервы** (разм., неадабр.) — хвалявацца, моцна нерваваць каго-н. || *прым.* **нервовы**, -ая, -ае. *Н. цэнтр. Нервовыя хваробы. Нервовая сістэма. Н. цік.*

**НЕРВАВАЦЦА**, нервуюся, нервуешся, нервуецца; нервуйся; *незак.* Быць ва ўзбуджаным, нервовым стане; хвалявацца, злавацца. || *зак.* **панервавацца**, -рвуюся, -рвуешся, -рвуецца. || *наз.* **нерваванне**, -я, *н.*

**НЕРВАВАЦЬ**, нервую, нервуеш, нервуе; нервуй; *незак., каго і без дап.* Даводзіць каго-н. да нервовага стану. *Гэта выступленне нервавала прысутных.* || *наз.* **нерваванне**, -я, *н.*

**НЕРВОВАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* нервовы. **2.** Павышаная ўзбуджальнасць нервовай сістэмы.

**НЕРВОВАХВОРЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Чалавек, які пакутуе на нервовую хваробу. *Клініка для нервовахворых.* || *ж.* **нервовахворая**, -ай, *мн.* -ыя, -ых.

**НЕРВОВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* нерв. **2.** Лёгка ўзбуджальны, з раздражненнем нерваў. *Н. твар.* **3.** Якога лёгка расхваляваць; неспакойны. *Нервовая жанчына.* **4.** Неспакойны, трывожны (аб рабоце, жыцці і пад.). *Нервовая праца.* || *наз.* **нервовасць**, -і, *ж.* (да 2—4 знач.).

**НЕРВОЗНЫ**, -ая, -ае. **1.** Хваравіта раздражняльны; які мае павышаную ўзбуджальнасць. *Н. чалавек.* **2.** Звязаны з раздражненнем, які выражае нервознасць. *Н. смех.* **3.** Неспакойны, трывожны. *Нервознае жыццё.* || *наз.* **нервознасць**, -і, *ж.*

**НЕРЖАВЕЮЧЫ**, -ая, -ае. Які не ржавее. *Нержавеючая сталь.*

**НЕРПА**, -ы, *мн.* -ы, нерп *і* -аў, *ж.* Ластаногая млекакормячая жывёліна сямейства цюленяў. *Паляваць на нерпаў.* || *прым.* **нерпавы**, -ая, -ае.

**НЕРУКАТВОРНЫ**, -ая, -ае (уст. *і* высок.). Такі, якога нельга стварыць працай рук чалавека. *Н. помнік.* || *наз.* **нерукатворнасць**, -і, *ж.*

**НЕРУХАВЫ**, -ая, -ае (разм.). Непаваротлівы, марудлівы. *Н. чалавек.* || *наз.* **нерухавасць**, -і, *ж.*

**НЕРУХОМАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* нерухомы. **2.** Маёмасць у выглядзе зямельнага ўчастка і (або) размешчаных на ім будынкаў, збудаванняў і пад.; нерухомая маёмасць. *Набыць н.*

**НЕРУХОМЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не рухаецца, застаецца ўвесь час на адным месцы. *Н. блок. Стаяць нерухома* (прысл.). **2.** *перан.* Які не змяняе свайго выразу. *Н. позірк.* **3.** У граматыцы: які не мяняе свайго месца (пра націск). || *наз.* **нерухомасць**, -і, *ж.*

**НЕРУШ**, -ы, *Т* -шшу, *ж.* Што-н. некранутае (нявораная зямля, дзікі лес, грыбное месца і пад.); некранутая паверхня чаго-н. *Неаглядная н. тундры.* || *прым.* **нерушны**, -ая, -ае.

**НЕРЭАЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не існуе ў рэчаіснасці; фантастычны. **2.** Неажыццявімы. *Н. план.* || *наз.* **нерэальнасць**, -і, *ж.*

**НЕСАКРУШАЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Такі, якога нельга зруйнаваць, разбурыць; устойлівы. *Несакрушальная воля народа.* || *наз.* **несакрушальнасць**, -і, *ж.*

**НЕСАМАВІТЫ**, -ая, -ае. **1.** Непрывабны з выгляду; непрыгожы. *Н. на выгляд.* **2.** Не зусім добры; дрэнны. *Несамавітая дарога.* || *наз.* **несамавітасць**, -і, *ж.*

**НЕСВЯДОМЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не ўсведамляе сваіх адносін да рэчаіснасці. *Несвядомае дзіця.* **2.** Якому не ўласціва ўсведамленне сваіх абавязкаў. *Н. работнік.* **3.** Які адбываецца без кантролю свядомасці; інстынктыўны. *Н. ўчынак.* || *наз.* **несвядомасць**, -і, *ж.*

**НЕСКАНЧОНЫ**, -ая, -ае. Надзвычай доўгі; працяглы, бясконцы. *Нескончоныя спрэчкі.* || *наз.* **нескончонасць**, -і, *ж.*

**НЕСЛУХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Непаслухмяны, свавольны чалавек (часцей аб дзецях).

**НЕСПАГАДЛІВЫ**, -ая, -ае. Нясхільны да спагады; нячулы, няўважлівы да іншых. || *наз.* **неспагадлівасць**, -і, *ж.*

**НЕСПАГАДНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *неспагадлівы.* || *наз.* **неспагаднасць**, -і, *ж.*

**НЕСПАДЗЕЎКА**, -і, *ДМ* -дзеўцы, *мн.* -і, -дзевак, *ж.* (разм.). Нечаканасць, непрадбачанасць.

**НЕСПАДЗЕЎКІ**, *прысл.* (разм.). Нечакана, раптоўна. *Н. пайшоў дождж.*

**НЕСПАДЗЯВАНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* неспадзяваны. **2.** Нечаканае здарэнне, выпадак і пад. *Прыемная н.*

**НЕСПАДЗЯВАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Нечаканае здарэнне, выпадак і пад.

**НЕСПАДЗЯВА́НЫ**, -ая, -ае. Нечаканы, непрадбачаны. *Н. госць. Здарылася неспадзяванае* (наз.). || *наз.* **неспадзява́насць**, -і, *ж.*

**НЕСПАКО́Й**, -ю, *м.* **1.** Трывога, душэўнае ўзбуджэнне. *Яго ахапіў н.* **2.** Масавае хваляванне, узбуджэнне. *Грамадскі н.* **3.** Турботы, клопаты аб кім-, чым-н. *Н. за сына.*

**НЕСПРАВЯДЛІ́ВАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* несправядлівы. **2.** Несправядлівы ўчынак, несправядлівае слова. *Дапусціць н.*

**НЕСПРАВЯДЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які адступаецца ад справядлівасці, супярэчыць справядлівасці. *Н. прыгавор.* || *наз.* **несправядлі́васць**, -і, *ж.*

**НЕСТРАЯВІ́К**, -раевіка́, *мн.* -раевікі́, -раевіко́ў, *м.* (разм.). Ваеннаслужачы нестраявой[1] часці.

**НЕСТРАЯВЫ́**[1], -а́я, -о́е. **1.** У арміі: які адносіцца да вайсковых часцей, не звязаных з непасрэдным вядзеннем баявых дзеянняў. *Нестраявая часць.* **2.** *у знач. наз.* **нестраявы́**, -о́га, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.* Тое, што і *нестраявік. Каманда нестраявых.*

**НЕСТРАЯВЫ́**[2], -а́я, -о́е. Непрыгодны для будаўніцтва як матэрыял. *Н. лес.*

**НЕСУМЛЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які страціў сумленне, дазваляе сабе непрыстойныя, бессаромныя ўчынкі. *Н. чалавек.* **2.** Які выяўляе адсутнасць сумлення. *Усё гэта ў яго нажыта несумленным шляхам.* || *наз.* **несумле́ннасць**, -і, *ж.*

**НЕСУМНЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які не выклікае сумненняў; бясспрэчны. *Н. поспех. Несумненна* (прысл.) *правільна.* || *наз.* **несумне́ннасць**, -і, *ж.*

**НЕСУМЯШЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, які не можа існаваць побач, сумесна, адначасова з кім-, чым-н. *Несумяшчальныя паняцці. Несумяшчальныя характары.* || *наз.* **несумяшча́льнасць**, -і, *ж. Псіхалагічная н.*

**НЕСУПЫ́ННЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *няспынны.* || *наз.* **несупы́ннасць**, -і, *ж.*

**НЕСУСВЕ́ТНЫ**, -ая, -ае (разм.). Які здзіўляе сваёй недарэчнасцю, бязглуздзіцай. *Несусветная хлусня.* || *наз.* **несусве́тнасць**, -і, *ж.*

**НЕСУСВЕ́ЦІЦА**, -ы, *ж.* (разм.). Што-н. недарэчнае, бязглуздае, незразумелае. *Нагаварыць несусвеціцы.*

**НЕСУЦЕ́ШНЫ**, -ая, -ае. Такі, якога цяжка або немагчыма суцешыць; моцны па сіле праяўлення. *Н. боль.* || *наз.* **несуце́шнасць**, -і, *ж.*

**НЕСУЦЯША́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які не прыносіць суцяшэння; які цяжка або нельга суцешыць. *Несуцяшальныя словы. Несуцяшальнае гора.* || *наз.* **несуцяша́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕ́СЦІ**[1], нясу́, нясе́ш, нясе́; нясём, несяце́, нясу́ць; нёс, не́сла *і* нясла́, не́сла *і* нясло́; нясі́; не́сены; *незак.* **1.** *каго-што.* Узяўшы ў рукі, нагрузіўшы на сябе, перамяшчаць, дастаўляць куды-н. *Н. чамадан.* **2.** *каго-што* і *без дап.* Імкліва рухаць, перамяшчаць сілай свайго руху. *Вецер нясе па небе хмары.* **3.** *каго-што* (*толькі ў 3 ас.*). Прымушаць каго-н. ісці куды-н.; цягнуць (разм.). *Куды цябе нясе?* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Дзьмуць, павяваць, месці (пра халоднае паветра, завіруху і пад.). *Ад акна несла* (безас.) *холадам.* **5.** пераважна *безас.* Моцна пахнуць (у 1 знач.). *Нясе гарам.* **6.** *перан., што.* Выконваць якія-н. даручэнні, абавязкі па службе і пад. *Н. адказнасць. Н. ахову. Н. вахту.* **7.** *перан., што.* Пакутаваць ад чаго-н.; мець страты. *Н. пакаранне. Н. страты.* **8.** *перан., што.* Гаварыць што-н. недарэчнае, бязглуздае (разм.). **9.** *перан., што.* Мець, змяшчаць у сабе; быць носьбітам чаго-н. *Н. радасць людзям.* **10.** *што.* Быць аснашчаным чым-н. *Карабель нясе шэсць гармат.* || *зак.* **пане́сці**, -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; -нясём, -несяце́, -нясу́ць; -нёс, -не́сла *і* -нясла́, -не́сла *і* -нясло́; -не́сены. *П. кару. П. страты.* || *наз.* **нясе́нне**, -я, *н.* (да 6 знач.) *і* **но́ска**, -і, *ДМ* но́сцы, *ж.* (да 1 знач.).

**НЕ́СЦІ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., нясе́; не́сла *і* нясла́; *незак., што.* Пра птушак: класці яйкі. || *зак.* **зне́сці**, знясе́; зне́сла *і* знясла́; зне́сены. || *наз.* **нясе́нне**, -я, *н.*

**НЕ́СЦІСЯ**[1], нясу́ся, нясе́шся, нясе́цца; нясёмся, несяце́ся, нясу́цца; нёсся, не́слася *і* нясла́ся, не́слася *і* нясло́ся; нясі́ся; *незак.* **1.** Хутка рухацца, імчацца ўперад. *Несліся коні.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Распаўсюджвацца (пра гукі, пахі, чуткі). *Нясуцца песні. Несліся новыя чуткі.*

**НЕ́СЦІСЯ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., нясе́цца; не́слася *і* нясла́ся; *незак.* Пра птушак: класці яйкі. || *зак.* **зне́сціся**, знясе́цца; зне́слася *і* знясла́ся.

**НЕСЦІХА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не сціхае, не змаўкае доўгі час; які чуваць бесперапынна. *Н. гул.* **2.** Які не праходзіць, не суцішаецца (пра боль і пад.). *Н. боль.* || *наз.* **несціха́насць**, -і, *ж.*

**НЕ́ТА**, *нескл.* (спец.). Чыстая вага тавару без тары і ўпакоўкі.

**НЕ́ТРЫ**, -аў. **1.** Тое, што знаходзіцца, змяшчаецца пад зямной паверхняй. *У нетрах зямлі. Распрацоўка нетраў.* **2.** *перан.* Унутраная прастора, глыбінныя часткі краіны, раёна і пад. *Н. Палесся.* **3.** Непраходныя, глухія мясціны. *Лясныя н.* **4.** *перан.* Унутраная, глыбінная частка чаго-н. *Н. памяці.*

**НЕТРЫМА́ННЕ**, -я, *н.* У выразе: **нетрыманне мачы** — міжвольнае выдзяленне мачы.

**НЕЎВЯДА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які застаецца свежым, не вяне. *Неўвядальная зелень садоў.* **2.** *перан.* Які з цягам часу не траціць свайго значэння, сілы і пад. (высок.). *Неўвядальная слава. Неўвядальная прыгажосць.* || *наз.* **неўвяда́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕЎТАМО́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не можа супакоіцца, вельмі рухавы. *Неўгамоннае дзіця.* **2.** Неспакойны, турботны. *Неўгамоннае жыццё.* || *наз.* **неўгамо́ннасць**, -і, *ж.*

**НЕЎЖЫВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які не ўжываецца або рэдка выкарыстоўваецца. *Неўжывальнае слова.* || *наз.* **неўжыва́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕЎЗАБА́ВЕ**, *прысл.* Хутка, у хуткім часе. *Н. ўсе раз'ехаліся.*

**НЕЎЗАМЕ́ТКУ**, *прысл.* (разм.). Так, што цяжка заўважыць; непрыметна. *Н. выбег з хаты.*

**НЕЎЗДАГА́Д**, *безас., у знач. вык.* (разм.). Не здагадацца, не зразумець; няўцям. *Яго словы мне былі н.*

**НЕЎЗЛЮБІ́ЦЬ**, неўзлюблю́, няўзлю́біш, няўзлю́біць; *зак., каго-што.* Адчуць непрыхільнасць, непрыязнасць да каго-, чаго-н. *Н. з першай сустрэчы.*

**НЕЎЛАДКАВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Не прыведзены да ладу; неўпарадкаваны. *Н. архіў.* **2.** Не забяспечаны чым-н. неабходным. *Н. быт.* || *наз.* **неўладкава́насць**, -і, *ж.*

**НЕЎМІРУ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які жыве вечна, не паддаецца смерці. *Н. народ.* **2.** Які застаецца назаўсёды ў памяці людзей. *Н. подзвіг.* || *наз.* **неўміру́часць**, -і, *ж.*

**НЕЎМЯША́ННЕ**, -я, *н.* Адмаўленне ад умяшання ў што-н. *Палітыка неўмяшання.*

**НЕЎНІКНЁНЫ**, -ая, -ае. Якога нельга ўнікнуць; непазбежны. *Н. лёс.* || *наз.* **неўнікнёнасць**, -і, *ж.*

**НЕЎПАПА́Д**, *прысл.* Недарэчы, не да месца. *Гаварыць н.*

**НЕЎРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да нервовай сістэмы, напр.: *неўрапатыя* (павышэнне ўзбуджальнасці нервовай сістэмы), *неўрапат, неўрасклероз.*

**НЕЎРАДЖА́Й**, -ю, *М* -джа́і, *мн.* -джа́і, -jáў, *м.* Дрэнны, нізкі ўраджай. *Н. жыта.*

**НЕЎРАДЖА́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які вызначаецца неўраджаем, звязаны з ім. *Н. год.*

**НЕЎРАЛГІ́Я**, -і, *ж.* Прыступы вострых мясцовых боляў ад запалення якога-н. нерва і яго абалонкі. *Міжрэберная н.* || *прым.* **неўралгі́чны**, -ая, -ае.

**НЕЎРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Сукупнасць навук, якія вывучаюць будову, развіццё і дзейнасць нервовай сістэмы. || *прым.* **неўралагі́чны**, -ая, -ае.

**НЕЎРАПАТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які займаецца хваробамі нервовай сістэмы і іх лячэннем. || *прым.* **неўрапаталагі́чны**, -ая, -ае.

**НЕЎРАПАТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач, спецыяліст па неўрапаталогіі.

**НЕЎРАСТЭ́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які хварэе на неўрастэнію. || *ж.* **неўрастэ́нічка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**НЕЎРАСТЭНІ́Я**, -і, *ж.* Неўроз, пры якім павышаная ўзбуджальнасць спалучаецца з хуткай стамляльнасцю, раздражняльнасцю, болем галавы, парушэннем сну. || *прым.* **неўрастэні́чны**, -ая, -ае.

**НЕЎРО́З**, -у, *м.* Захворванне, выкліканае расстройствам дзейнасці цэнтральнай нервовай сістэмы. *Н. сэрца.* || *прым.* **неўраты́чны**, -ая, -ае.

**НЕЎРО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па неўралогіі.

**НЕЎТАЙМАВА́НЫ**, -ая, -ае. Такі, якога цяжка, немагчыма ўтаймаваць, стрымаць, сцішыць; вельмі моцны. *Н. агонь. Неўтаймаваная лютасць.* || *наз.* **неўтаймава́насць**, -і, *ж.*

**НЕФАРМА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Член нефармальнай, афіцыйна не зацверджанай арганізацыі, групы.

**НЕФАРМА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **нефармальныя аб'яднанні** — групы аднадумцаў, якія не з'яўляюцца афіцыйнай юрыдычнай адзінкай, не маюць свайго рахунку ў банку, штата супрацоўнікаў, органа друку і пад.

**НЕФРЫ́Т**[1], -у, *М* -ры́це, *м.* Запаленне нырак.

**НЕФРЫ́Т**[2], -у, *М* -ры́це, *м.* Малочнабелы або зеленаваты мінерал, які ідзе на выраб упрыгожанняў і інш. || *прым.* **нефры́тавы**, -ая, -ае.

**НЕ́ХАЦЯ**, *прысл.* Без жадання, неахвотна. *Н. рабіць што-н.*

**НЕХЛЯМЯ́ЖЫ**, -ая, -ае. Несамавіты; нязграбны, няўклюдны; дрэнна зроблены (аб рэчах, прадметах). || *наз.* **нехлямя́жасць**, -і, *ж.*

**НЕ́ХРЫСЦЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (разм., лаянк.). Бессаромны, бессардэчны чалавек. *Ці ж мы нехрысці якія?*

**НЕ́ХТА**, не́кага, не́каму, не́кага, не́кім, аб не́кім, *займ. неазнач.* **1.** Невядома хто, нейкі чалавек. *Н. стукаў у дзверы.* **2.** Якісьці мала каму вядомы чалавек (у спалучэнні з прозвішчам, імем). *Н. Іваноў.* **3.** Які-н. чалавек, усё роўна хто; хто-н.

**НЕЦЭНЗУ́РНЫ**, -ая, -ае. Непрыстойны, грубы. *Нецэнзурныя словы.* || *наз.* **нецэнзу́рнасць**, -і, *ж.*

**НЕЦЯРПЕ́ННЕ**, -я, *н.* Недахоп, адсутнасць цярпення пры чаканні каго-, чаго-н. *Чакаць з нецярпеннем.*

**НЕЦЯРПІ́МЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, што нельга цярпець; недапушчальны. *Нецярпімае становішча.* **2.** Які не можа па сваёй натуры мірыцца з кім-, чым-н. || *наз.* **нецярпі́масць**, -і, *ж.*

**НЕЦЯРПЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Такі, якому не ўласціва цярпенне. *Н. вучань.* || *наз.* **нецярплі́васць**, -і, *ж.*

**НЕ́ЧАГА**[1], не́чаму, не́чага, не́чым, не́ аб чым. **1.** *займ. адмоўны, з інф.* Няма нічога, каб... *Чытаць нечага, трэба ісці ў бібліятэку. Хлеба нечым нарэзаць.* **2.** *займ. неазнач. у Р* (ад займенніка «нешта»). Чагосьці. *Для нечага ж трэба яму ехаць у горад?* **3.** *часц.* Лепш бы; дарэчы (разм.). *Заадно нечага і родных наведаў.*

**НЕ́ЧАГА**[2], *у знач. безас. вык., з інф.* Не трэба, няма патрэбы, няма сэнсу. *Н. заўчасна пра гэта думаць.*

**НЕЧАКА́НЫ**, -ая, -ае. Такі, якога не чакалі; непрадбачаны. *Н. прыезд.* || *наз.* **нечака́насць**, -і, *ж.*

**НЕЧАЛАВЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены чалавечнасці; негуманны. || *наз.* **нечалаве́чнасць**, -і, *ж.*

**НЕЧАЛАВЕ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Не ўласцівы чалавеку. *Н. крык.* **2.** Які перавышае чалавечыя магчымасці; празмерны. *Нечалавечыя намаганні.* **3.** Бесчалавечны. *Нечалавечыя пакуты.*

**НЕЧАПА́НЫ**, -ая, -ае. Такі, якога не чапалі, да якога не дакраналіся. *Нечапаная вячэра.*

**НЕЧАРГО́ВЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца без чаргі, па-за вызначаным тэрмінам. *Н. адпачынак.* || *наз.* **нечарго́васць**, -і, *ж.*

**НЕЧАСА́НЫ**[1] *і* **НЯЧЭ́САНЫ**[1], -ая, -ае. Якога не часалі, раскудлачаны. *Нечасаныя валасы.*

**НЕЧАСА́НЫ**[2] *і* **НЯЧЭ́САНЫ**[2], -ая, -ае. Не апрацаваны часаннем. *Нечасаныя бярвёны.*

**НЕЧЛЕНАРАЗДЗЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены членараздзельнасці; невыразны. *Нечленараздзельнае маўленне.* || *наз.* **нечленараздзе́льнасць**, -і, *ж.*

**НЕЧУВА́НЫ**, -ая, -ае. Небывалы, надзвычайны. *Н. поспех.* || *наз.* **нечува́насць**, -і, *ж.*

**НЕЧЫСТАТА́**, -ы́, *ДМ* -стаце́, *ж.* **1.** *гл.* нячысты. **2.** толькі *мн.* **нечысто́ты**, -сто́т *і* -таў. Тое, што знаходзіцца ў памыйніцы; адкіды.

**НЕ́ЧЫСЦЬ**, -і, *ж., зб.* (разм.). **1.** Паводле народных павер'яў: нячыстая сіла (чэрці, ведзьмы). **2.** *перан.* Жывёлы, насякомыя, якія выклікаюць агідлівае пачуццё. *Бусел знішчае мышэй, гадзюк, вусеняў і іншую н.* **3.** *перан.* Аб ганебных людзях, якія ўвасабляюць сабою ўсё варожае, цёмнае.

**НЕШМАТЛІ́КІ**, -ая, -ае. Які складаецца з невялікай колькасці каго-, чаго-н. *Н. атрад геолагаў.* || *наз.* **нешматлі́касць**, -і, *ж.*

**НЕ́ШТА**[1], не́чага, не́чаму, не́шта, не́чым, аб не́чым; *займ. неазнач.* **1.** Невядома, незразумела што; штосьці. *Н. пісаць.* **2.** звычайна ў *Н* і *В.* Нейкі прадмет, з'ява, пачуццё і пад. *Н. страшнае.*

**НЕ́ШТА**[2], *прысл.* **1.** Чагосьці, чамусьці, невядома чаму. *Н. нездаровіцца.* **2.** Прыблізна. *Цягнік спазніўся н. на гадзіну.*

**НЕ́ШТАЧКА**, *займ. неазнач.* (ужыв. толькі ў *Н* і *В*; разм.). Тое, што і *нешта*[1] (у 2 знач.). *А я н. знайшоў.*

**НЕШЧАСЛІ́ВЕЦ**, -ліўца, *мн.* -ліўцы, -ліўцаў, *м.* (разм.). Нешчаслівы чалавек; няўдачнік.

**НЕШЧАСЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прыносіць няшчасце, гора; поўны няшчасця. *Н. дзень.* **2.** Такі, якому не дадзена шчасце, радасць. *Без маткі нешчаслівыя дзеткі* (прыказка). **3.** Які не прыносіць удачы. *Н. латарэйны білет.* **4.** Такі, якому не шанцуе, не спрыяе поспех. *Н. сапернік.*

**НЕ́ЯК**. **1.** *прысл.* Нейкім чынам, спосабам. *Трэба н. дабрацца дамоў.* **2.** *прысл.* Аднойчы. *Н. вясной пайшлі рыбу лавіць.* **3.** *безас., у знач. вык., з інф.* Нельга, няма як (разм.). *Дзіця н. кінуць адно.*

**НІ**, *часц.* і *злуч.* **1.** *часц. ўзмацн.* У адмоўных сказах указвае на поўную адсутнасць чаго-н.; узмацняе адмоўе. *На небе ні хмурынкі. Нідзе ні расінкі. Нідзе нікога, ні аднаго чалавека.* **2.** *часц. ўзмацн.* Ужыв. ў даданых сказах у спалучэннях са словамі «як», «куды», «хто» і пад., каб падкрэсліць, што дзеянне галоўнага сказа захоўвае сваю сілу пры любых абставінах. *Як ні спяшайся, усё роўна не паспееш.* **3.** *часц. адмоўная.* Ужыв. ў спалучэннях з *Р* назоўнікаў у безасабовых адмоўных сказах пры катэгарычнай забароне якога-н. дзеяння. *Ні кроку далей!* **4.** *злуч. пералічальны.* Ужыв. ў адмоўных сказах пры пералічэнні пры наяўнасці адмоўя. *Не чуваць ні песень, ні гоману.*

**НІ...**, *прыстаўка.* **1.** Ужыв. пры ўтварэнні адмоўных займеннікаў і прыслоўяў, напр.: *ніхто, нішто, нічый, ніякі* і інш. **2.** Аддзяляецца ад адмоўных займеннікаў пры спалучэнні з прыназоўнікамі. *Ні ў якім разе.*

**НІАДКУ́ЛЬ**, *прысл.* Ні з якога месца, ні з якога боку. *Н. няма звестак. Н. не чуваць галасоў.*

**НІ́БЫ**, *злуч.* і *часц.* **1.** *злуч. параўнальны.* Ужыв. ў параўнальных зваротах і сказах; па значэнні адпавядае злучніку «як». *Гул нарастаў, н. пры абвале.* **2.** *злуч. тлумачальны.* Выражае адценне недаверу да выказанага. *Так дакладна расказвае, н. сам бачыў.* **3.** *часц.* Выражае ўпэўненасць у адваротным, адмаўляючы магчымасць сумнення. *Н. я не клапацілася аб дзецях!*

**НІБЫ́ТА**, *злуч.* і *часц.* Тое, што і *нібы.*

**НІ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, ніў, *ж.* **1.** Апрацаванае пад сяўбу або засеянае поле. *Калгасная н.* **2.** *перан.* Галіна дзейнасці. *Працуе на высакароднай ніве асветы.*

**НІВЕЛІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Геадэзічны прыбор для нівеліравання.

**НІВЕЛІ́РАВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -руецца; *зак.* і *незак.* Згладзіцца (згладжвацца), страціўшы свае асаблівасці. *Пад уплывам літаратурнай мовы нівеліруюцца дыялектныя асаблівасці.* || *наз.* **нівелі́раванне**, -я, *н. і* **нівеліро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**НІВЕЛІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак., што.* **1.** Вызначыць (вызначаць) спецыяльнымі прыборамі вышыню пунктаў зямной паверхні над узроўнем мора або адносна якой-н. пэўнай вышыні (спец.). **2.** *перан.* Ураўноўваючы, згладзіць (згладжваць), знішчыць (знішчаць) адрозненні паміж кім-, чым-н. *Н. асаблівасці.* || *наз.* **нівелі́раванне**, -я, *н. і* **нівеліро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**НІВЕЛІРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па нівеліраванні (у 1 знач.). || *ж.* **нівеліро́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**НІГІЛІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Поўнае адмаўленне ўсяго агульнапрызнанага, поўны скептыцызм. || *прым.* **нігілісты́чны**, -ая, -ае. *Нігілістычныя погляды.*

**НІГІЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які адмаўляе ўсё агульнапрызнанае (кніжн.). **2.** Прадстаўнік рускай разначыннай інтэлігенцыі 60-х гадоў 19 ст., якая адмоўна адносілася да традыцый

дваранства і прыгонніцтва. ‖ *ж.* **нігілі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **нігілі́сцкі**, -ая, -ае.

**НІДЗЕ́**, *прысл.* Ні ў якім месцы. *Н. яго не сустракаў.*

**НІ́ЖАЙ**, *прысл.* і *прыназ.* Тое, што і *ніжэй.*

**НІЖЭ́Й.** **1.** *прысл.* Далей (пры спасылцы на наступнае месца тэксту). *Аб гэтым будзе сказана н.* **2.** *прыназ. з Р.* Уніз ад чаго-н. *Зламаць нагу н. калена.*

**НІЗ**, -у, *мн.* нізы́, -о́ў, *м.* **1.** Ніжняя частка чаго-н. *Н. рукава.* **2.** Паверхня, бок прадмета, процілеглы яго верху. *Н. скрыні.* **3.** Унутраны бок (матэрыі, вопраткі); спод. *Н. паліто.* **4.** Нізіннае месца. *Сцелецца па нізах туман.* **5.** Тое, што і *нізоўе.* **6.** *мн.* Шырокія пласты працоўнага народа. *Сацыяльныя нізы.* **7.** *мн.* Ніжнія ноты (спец.). *Браць нізы.*

**НІЗАВО́ШТА**, *прысл.* Тое, што і *нізашто.*

**НІЗАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які дзейнічае каля самай паверхні зямлі, вады і пад. *Н. вецер.* **2.** Які знаходзіцца ў нізкім месцы. *Нізавая дарога.* **3.** Які ўтварае ніжні ярус расліннага покрыва (спец.). *Нізавыя травы.* **4.** Які размяшчаецца ў нізоўях ракі. *Нізавыя гарады.* **5.** Які звязаны непасрэдна з масамі, з народам; які абслугоўвае масы, народ. *Нізавыя арганізацыі.*

**НІ́ЗАМ**, *прысл.* Па ніжняй частцы чаго-н., па больш нізкім месцы. *Агонь распаўсюджваўся н.*

**НІ́ЗАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* нізкі. **2.** Нізкі ўчынак. *Рабіць нізасці.*

**НІЗА́ЦЬ**, ніжу́, ні́жаш, ні́жа; ніжы́; ні́заны; *незак., што.* **1.** Набіраць, насаджваць падрад на нітку, дрот і пад. *Н. пацеркі. Н. грыбы.* **2.** *перан.* Пранізваць, працінаць наскрозь. ‖ *зак.* **нанізА́ць**, -ніжу́, -ні́жаш, -ні́жа; -ніжы́; -ні́заны. ‖ *наз.* **ніза́нне**, -я, *н.*

**НІЗАШТО́**, *прысл.* **1.** Ні ў якім разе, ні пры якіх абставінах. *Н. не згаджуся.* **2.** Дарма, без прычыны. *Узвяла паклёп н.*

**НІЗІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -зі́н, *ж.* **1.** Нізкае месца. *Па нізіне сцелецца туман.* **2.** Раўніна, якая знаходзіцца не вышэй 200 м над узроўнем мора. *Палеская н.* ‖ *прым.* **нізі́нны**, -ая, -ае.

**НІ́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* **1.** Нанізаныя на нітку, дрот і пад. якія-н. аднародныя прадметы (грыбы, пацеркі і пад.). *Насушыць нізку грыбоў.* **2.** Цыкл мастацкіх твораў аднаго жанру. *Н. вершаў.*

**НІЗКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. нізкі (у 1—4 знач.), напр.: *нізкааплатны, нізкабортны, нізкагатунковы, нізкадушны, нізкаствольны, нізкатэмпературны, нізкаўдойны, нізкаякасны.*

**НІЗКАГАТУНКО́ВЫ**, -ая, -ае. Нізкага гатунку, невысокай якасці. *Н. тавар.* ‖ *наз.* **нізкагатунко́васць**, -і, *ж.*

**НІЗКАПАКЛО́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто нізкапаклоннічае; ліслівы, угодлівы чалавек. ‖ *прым.* **нізкапакло́нніцкі**, -ая, -ае. *Н. тон.*

**НІЗКАПАКЛО́ННІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Займацца нізкапаклонствам.

**НІЗКАПАКЛО́НСТВА**, -а, *н.* Рабскае, ліслівае пакланенне каму-, чаму-н.

**НІЗКАПРО́БНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае нізкую пробу ў сувязі з вялікай прымессю медзі і волава ў золаце і серабры. **2.** *перан.* Невысокай якасці; дрэнны (разм.). *Н. тавар.* ‖ *наз.* **нізкапро́бнасць**, -і, *ж.*

**НІЗКАРО́СЛЫ**, -ая, -ае. Невялікага росту; невысокі. *Н. хлопец. Н. хмызняк.* ‖ *наз.* **нізкаро́сласць**, -і, *ж.*

**НІЗКАСО́РТНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *нізкагатунковы.* ‖ *наз.* **нізкасо́ртнасць**, -і, *ж.*

**НІ́ЗКІ**, -ая, -ае; ніжэ́йшы. **1.** Малы па вышыні, які знаходзіцца на невялікай вышыні ад зямлі. *Нізкае дрэва. Н. плот. Ляцець нізка* (прысл.). **2.** Які не дасягнуў звычайнай сярэдняй нормы, пэўнага ўзроўню. *Н. ціск. Нізкая тэмпература.* **3.** Дрэнны па якасці або наогул дрэнны. *Нізкая якасць драўніны.* **4.** *перан.* Подлы, ганебны. *Н. ўчынак. Так рабіць нізка* (у знач. вык.). **5.** У 18 — пачатку 19 ст. пра стыль мовы: звычайны, просты, не прыняты ў літаратуры. **6.** Невялікай вышыні (пра гукі, голас і пад.). *Н. бас. Н. голас. Спяваць нізка* (прысл.). ‖ *памянш.-ласк.* **ні́зенькі**, -ая, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **ні́засць**, -і, *ж.* (да 4 знач.).

**НІЗО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Ніжняя частка цячэння ракі з навакольнай мясцовасцю.

**НІКАГУ́СЕНЬКІ**, *займ.* (разм.). Узмацняльная форма да нікога. *Н. навокал.*

**НІКЕЛІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** *гл.* нікеляваць. **2.** Слой нікелю на чым-н. *Н. абгарэла.*

**НІ́КЕЛЬ**, -ю, *м.* Хімічны элемент, серабрыста-белы тугаплаўкі метал, які шырока ўжываецца ў тэхніцы. ‖ *прым.* **ні́келевы**, -ая, -ае. *Нікелевыя руды.*

**НІКЕЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; нікелява́ны *і* **НІКЕЛІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што.* Пакрыць (пакрываць) слоем нікелю. ‖ *зак.* **аднікелява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лява́ны *і* **аднікелірава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. ‖ *наз.* **нікеліро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **нікелірава́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **нікеліро́вачны**, -ая, -ае.

**НІ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; нік, ні́кла; -ні; *незак.* **1.** Схіляцца, нахіляцца, апускацца. *Нікнуць лозы да зямлі.* **2.** *перан.* Вянуць. *Нікне трава ад спёкі.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Станавіцца слабейшым па сіле праяўлення; слабець. *Нікне памяць.* **4.** *перан.* Знікаць. *Нікнуць агні ў змроку.* ‖ *зак.* **пані́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні́к, -кла; -ні.

**НІКО́ЛІ**, *прысл.* Ні ў які іншы час; ні пры якіх умовах, акалічнасцях. *Адважныя людзі н. не будуць рабамі.*

**НІКО́ЛЬКІ**, *прысл.* Ні ў якой меры; ані. *Ён н. не пакрыўдзіўся.* ‖ *памянш.-ласк.* **ніко́лечкі** (разм.). *Н. не стаміўся.*

**НІКУ́ДЫ**, *прысл.* Ні ў якое месца; ні ў якім напрамку. *Н. не пайду.* ◊ **Нікуды не варты** — вельмі дрэнны.

**НІКУДЫ́ШНЫ**, -ая, -ае (разм.). Нікуды не варты, дрэнны. *Н. работнік.*

**НІКЧЭ́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** Неістотны, нязначны. *Нікчэмная крыўда.* **2.** Нізкі ў маральных адносінах, нягодны. *Н. чалавек.* **3.** Вельмі дрэнны, няўдалы, малы. *Н. ўраджай.* ‖ *наз.* **нікчэ́мнасць**, -і, *ж.*

**НІМБ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сімвал святасці — ззянне ў выглядзе круга вакол галавы (на іконах, карцінах рэлігійнага зместу). **2.** *перан.* Атмасфера славы, поспеху вакол каго-, чаго-н. *Н. славы.* ‖ *прым.* **ні́мбавы**, -ая, -ае.

**НІ́МФА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* У грэчаскай міфалогіі: бажаство ў выглядзе жанчыны, якое ўвасабляе розныя сілы прыроды. *Лясная н. Марская н.*

**НІ́ПЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (спец.). Металічная злучальная трубка з разьбой на канцах. ‖ *прым.* **ні́пельны**, -ая, -ае.

**НІРВА́НА**, -ы, *ж.* **1.** Паводле вучэння будыстаў: стан глыбокага спакою і поўнай унутранай гармоніі, які дасягаецца адмаўленнем ад усіх жыццёвых клопатаў і імкненняў. **2.** *перан.* Стан спакою, сузірання і асалоды. *Апусціцца ў нірвану.*

**НІТ**[1], ніта, *мн.* ні́ты, -аў, *м.* Металічны стрыжань, які мае на адным канцы галоўку, а на другім — разьбу, на якую накручваецца гайка; болт (спец., уст.). ‖ *прым.* **ні́тавы**, -ая, -ае.

**НІТ**[2], ніта́, *мн.* ніты́, -о́ў, *м.* (спец.). **1.** Злучэнне ніцяных петляў у ткацкім станку для падымання нітак асновы. *Укідаць аснову ў ніты.* **2.** Спосаб ткання, ад якога залежыць від перапляцення ніцей у тканіне. *Абрус у шаснаццаць нітоў.*

**НІТАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ту́ецца; *незак.* **1.** Злучацца нітамі[1]. **2.** *перан.* Злучацца, звязвацца. ‖ *зак.* **зніթава́цца**, -ту́ецца.

**НІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак.* **1.** *што.* Злучаць, змацоўваць нітамі[1]. **2.** *перан., каго-што.* Злучаць, звязваць. *Нітуе вясна сілы.* ‖ *зак.* **знітава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *наз.* **нітава́нне**, -я, *н.*

**НІ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Тонка ссуканая пража. *Шаўковыя ніткі.* **2.** Нізка (пацерак, караляў і пад.). **3.** *перан.* Аб чым-н. пабудаваным, што выцягнулася ў выглядзе простай лініі. *Н. нафтаправода. Н. чыгункі.* **4.** *перан.* Тое, што злучае, служыць для сувязі. ◊ **Да (апошняй) ніткі** — усё, поўнасцю, да канца (абабраць, аграбіць, прапіць і пад.). **Прамокнуць да ніткі** — зусім. **Шыта белымі ніткамі** — няўмела, няўдала схавана што-н. ‖ *памянш.-ласк.* **ні́тачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ◊ **Па нітачцы бегаць** — быць паслухмяным, дысцыплінаваным. ‖ *прым.* **ні́тачны**, -ая, -ае.

**НІТКАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Які падобны на нітку, нагадвае нітку. *Ніткападобныя чэрві.* ‖ *наз.* **ніткападо́бнасць**, -і, *ж.*

**НІТРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да азоту, да азотнай кіслаты, напр.: *нітрабензол, нітралак, нітрафарба.*

**НІТРАГЛІЦЭРЫ́НА**, -ы, *ж.* Арганічнае злучэнне ў выглядзе масляністай вадкасці, што атрымліваецца ўздзеяннем сумесі азотнай і сернай кіслаты на гліцэрыну; ужыв. як выбуховае рэчыва і як лекавы прэпарат. ‖ *прым.* **нітрагліцэры́навы**, -ая, -ае.

**НІТРА́ТЫ**, -аў, *адз.* нітра́т, -у (спец.). **1.** Солі і эфіры азотнай кіслаты, якія выкарыстоўваюцца ў тэхніцы, медыцыне, а таксама (солі) як угнаенне. **2.** толькі *мн.* Пра солі азотнай кіслаты ў злаках, садавіне, гародніне, калі яны перавышаюць дапушчальную норму (разм.). *Н. шкодныя для здароўя.* ‖ *прым.* **нітра́тны**, -ая, -ае.

**НІ́ЎХІ**, -аў, *адз.* ніўх, -а, *м.* Народ, які жыве па ніжнім цячэнні ракі Амур і на востраве Сахалін (устарэлая назва — гілякі). ‖ *ж.* **ні́ўхка**, -і, *ДМ* -хцы, *мн.* -і, -хак. ‖ *прым.* **ні́ўхскі**, -ая, -ае.

**НІХТО́**, нікóга, нікóму, нікóга, нікі́м, ні аб кім; *займ. адмоўны.* **1.** Ні адзін чалавек, ні адна жывая істота. *Н. не прыйшоў. Н. не хацеў з ім сябраваць.* **2.** *у знач. наз.* **ніхто́**, толькі ў *Н* і *Т*, *м.* і *ж.* Пра чалавека, які не мае ніякага дачынення да каго-н. *Хто ён табе? — Ніхто.*

**НІЦ**, *прысл.* Тварам уніз. *Упасці н.*

**НІЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *незак., што.* Перашываць, робячы спод верхам; пераніцоўваць. ‖ *зак.* **пераніцава́ць**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны. ‖ *наз.* **ніцава́нне**, -я, *н.*

**НІЦЕПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *ніткападобны.* ‖ *наз.* **ніцепадо́бнасць**, -і, *ж.*

**НІ́ЦМА**, *прысл.* Тварам уніз. *Стары ляжаў на зямлі н.*

**НІ́ЦЫ**, -ая, -ае. Пра дрэвы, кусты: з доўгімі звісаючымі галінамі. *Ніцыя лозы.*

**НІЦЬ**, -і, *мн.* ніці, -ей, *ж.* **1.** *мн.* Тое, што і *нітка.* **2.** Прадмет, які падобны на нітку, нагадвае нітку. *Н. лямпы напальвання. Ніці павуціння.* **3.** *перан.* Тое, што злучае адно з адным, служыць для сувязі. *Ніці дружбы.* ‖ *прым.* **ніцяны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**НІЧО́ГА**[1], *займ. адмоўны.* Тое, што і *нішто*[1] (у 1 знач.). *Яго н. не цікавіць.*

**НІЧО́ГА**[2]. **1.** *прысл.* Тое, што і *нішто*[2] (у 1 знач.). *Адчуваю сябе н.* **2.** *безас., у знач. вык.* Хоць бы што, не шкодзіць. *Многія стаміліся, а ён — н.* **3.** *у знач. пабочн. сл.* Неістотна, не мае значэння; абыдзецца. *Н., кніга абавязкова знойдзецца.*

**НІЧЫ́Й**, нічыйго́, нічыйму́, нічы́й (нічыйго́), нічыі́м, аб нічыі́м, *м.;* нічыя́, нічыёй, нічыю́, *ж.;* нічыё, нічыйго́, нічыйму́, нічыё, нічыі́м, аб нічыі́м, *н.; мн.* нічые́; *займ. адмоўны.* Які не належыць нікому. *Нічыя зямля.*

**НІЧЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** *гл.* нічыя. **2.** Тое, што і *нічый.*

**НІЧЫЯ́**, -ёй, *ж.* Такі вынік гульні, барацьбы і пад., калі ні адзін з праціўнікаў не выйграе. *Згадзіцца на нічыю.* ‖ *прым.* **нічы́йны**, -ая, -ае. *Н. лік.*

**НІ́ША**, -ы, *мн.* -ы, ніш, *ж.* Паглыбленне ў сцяне для змяшчэння там чаго-н. *Глыбокая н.*

**НІ́ШКАМ**, *прысл.* (разм.). **1.** Моўчкі. *Ка мне схілілася ты н.* **2.** Непрыкметна для іншых; употай. *Увайсці ў хату н.*

**НІШТАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Досыць добры, нядрэнны. *Н. касцюм.* **2.** Значны, немалы (па велічыні, колькасці). *Н. акраец хлеба.*

**НІШТО́**[1], нічо́га, нічо́му, нішто́, нічы́м, ні аб чым; *займ. адмоўны.* **1.** Ні адзін прадмет, ніякая з'ява, ніякая справа. *Яго н. не цікавіць.* **2.** *у знач. наз.* **нішто́**, *нескл., м.* Пра каго-, што-н., хто (што) нічога сабой не ўяўляе, не мае ніякай цаны. *Ператварыцца ў н.*

**НІШТО́**[2]. **1.** *прысл.* (часта ў спалучэнні са словам «сабе»). Нядрэнна, ніштавата, даволі добра. *Жывуць н. сабе.* **2.** *безас., у знач. вык.* Хоць бы што, не шкодзіць. *Працуе без адпачынку — і н.* **3.** *у знач. вык.* (часта ў спалучэнні са словам «сабе»). Неблагі, нядрэнны. *Ураджай н. Дзяўчына н. сабе.*

**НІШЧЫ́МНІЦА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Посная ежа. *Сядзець на нішчымніцы.* **2.** Бясхлебіца.

**НІШЧЫ́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** Не прыпраўлены скаромным, без скаромнага; посны. *Нішчымная капуста.* **2.** Без нічога, без якіх-н. дабавак; пусты. *Есці н. хлеб.*

**НІ́ШЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чыцца; *незак.* Знішчацца, гінуць, прападаць. *Безгаспадарчасцю нішчыцца багацце дзяржавы.*

**НІ́ШЧЫЦЬ**, -шчу, -шчыш, -шчыць; *незак., каго-што.* Знішчаць, разбураць; пустошыць, не даваць развівацца. *Н. лясы. Агонь спапяляў і нішчыў усё на сваім шляху.* ‖ *наз.* **нішчэ́нне**, -я, *н.*

**НІЯ́К**, *прысл.* Ніякім чынам; зусім. *Н. нельга. Н. не ўспомніць.*

**НІЯКАВА́ТА**, *прысл.* (разм.). **1.** Няёмка, не па сабе, сарамліва. *Адчуваць сябе н.* **2.** Нязручна. *Пісаць левай рукой было н.*

**НІЯ́КІ**, -ая, -ае, *займ. адмоўны.* **1.** У адмоўных сказах: ніводны, які б ні быў. *Ніякія довады не памаглі.* **2.** у спалучэнні з часціцай «не». Зусім не (разм.). *Н. я не сваяк табе.* ◊ **Без нічога ніякага** (разм.) — без дай прычыны; раптоўна. **Не вытрымліваць ніякай крытыкі** — быць нікуды не вартым.

**НОВА...** (а таксама **нава...**). Першая састаўная частка складаных слоў у знач.: 1) новы (у 1 знач.), які ўпершыню з'явіўся, напр.: *новазаведзены, новаўтварэнне;* 2) які адносіцца да новых месц, да новага месца, напр.: *новаадкрывальнік, новапасяленец;* 3) не старажытны (у 1 знач.), напр., *новаеўрапейскі;* 4) які толькі што пачынае што-н., прыступае да чаго-н.; які з'яўляецца навічком, напр.: *нованароджаны, новапрызначаны.*

**НОВАБУДО́ЎЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* **1.** Будаўніцтва новых заводаў, дамоў і пад. *Працаваць на новабудоўлі.* **2.** Новае збудаванне. *Школа-н.*

**НОВАНАРО́ДЖАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які толькі што або нядаўна нарадзіўся. *Нованароджаныя дзеці.* **2.** *у знач. наз.* **нованаро́джаны**, -ага, *м.*, **нованаро́джаная**, -ай, *ж., мн.* -ыя, -ых. Той, хто адзначае дзень свайго нараджэння. *Павіншаваць нованароджанага.*

**НОВАЎВЯДЗЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Новае правіла, нанава прыняты парадак. *Важнае н. Н. ў правапісе.*

**НОВАЎТВАРЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** З'яўленне новых форм або элементаў *Н. мінералаў.* **2.** Элемент, форма і пад., якія ўзніклі толькі што, нядаўна. *Н. ў лёгкіх.*

**НО́ВЕНЬКІ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Зусім новы (у 1 знач.). *Н. трактар.* **2.** *у знач. наз.* **но́венькае**, -ага, *н.* Навіна. *Што новенькага ў сям'і?* **3.** *у знач. наз.* **но́венькі**, -ага, *м.;* **но́венькая**, -ай, *ж., мн.* -ія, -іх. Навічок.

**НО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Упершыню створаны або зроблены; які ўзнік, з'явіўся нядаўна. *Новыя самалёты. Н. горад.* **2.** Адкрыты, вынайдзены нядаўна. *Новая планета.* **3.** Незнаёмы, малавядомы. *Новыя мясціны. Н. чалавек.* **4.** Які прыйшоў на змену ранейшаму, замяніў сабой тое, што было; чарговы, наступны. *Н. дырэктар. Радавацца новаму дню.* **5.** Які мае адносіны да нашай эпохі, часу. *Новая гісторыя.* **6.** Не той, што раней; іншы. *Н. сэнс.* **7.** Гэтага года, апошняга ўраджаю. *Н. хлеб.* **8.** *у знач. наз.* **но́вае**, -ага, *н.* Навіна. *Што ў вас новага?*

**НО́ГАЦЬ**, -гця, *мн.* -гці, -гцяў, *м.* Тое, што і *пазногаць.* ‖ *памянш.* **но́гцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **но́гцевы**, -ая, -ае.

**НОЖ**, нажа́, *мн.* нажы́, нажо́ў, *ж.* Прылада для рэзання, якая складаецца з ляза і тронак, а таксама рэжучая частка розных машын, інструментаў. ◊ **Без нажа зарэзаць** — дапячы каму-н. прыдзіркамі, папрокамі. **На нажах** *з кім* — у варожых адносінах. **Нож у спіну** *каму* — аб подлым, здрадніцкім учынку. **(Як) нож у сэрца** — наносіць крыўду, боль, пакуты. ‖ *прым.* **нажавы́**, -а́я, -о́е. *Нажавая рана.*

**НО́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* **1.** *гл.* нага. **2.** Апора, стойка (стала, крэсла і пад.). *Н. крэсла.* **3.** Ніжняя частка грыба або сцябло расліны. **4.** Рассоўная частка некаторых інструментаў (спец.). *Н. цыркуля.* ◊ **Казіная ножка** — самаробная папяроса ў выглядзе люлькі.

**НО́ЖНЫ**[1], но́жан. Футарал для шаблі, кінжала і пад.

**НО́ЖНЫ**[2], но́жнаў. **1.** Вялікія нажніцы. *Садовыя н.* **2.** Машына для рэзання чаго-н. з дапамогай пары вялікіх нажоў. *Дыскавыя н.*

**НО́ЖЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *нож;* невялікі нож. *Складаны н.* ‖ *памянш.-ласк.* **но́жычак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.*

**НО́ЗДРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Адна з парных вонкавых адтулін носа. *Дым лезе ў ноздры.* ‖ *прым.* **но́здравы**, -ая, -ае.

**НО́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., на каго і без дап.* (разм.). Паганяючы крыкам «но», прымушаць ісці хутчэй. ‖ *аднакр.* **но́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **но́канне**, -я, *н.*

**НО́НСЭНС**, -у, *м.* Бяссэнсіца, недарэчнасць, бязглуздзіца.

**НО́РАЎ**, -раву, *мн.* -равы, -аў, *м.* **1.** Характар, сукупнасць душэўных якасцей. *Круты н. Розныя па нораве.* **2.** Звычай, уклад жыцця, звычка. ◊ **З норавам** — упарты, наравісты.

**НОРД**, -у, *М* но́рдзе, *м.* (спец.). Поўнач, паўночны напрамак, а таксама паўночны вецер. *Н.-вест.* (паўночны захад, паўночна-заходні вецер). *Н.-ост* (паўночны ўсход, паўночна-ўсходні вецер). ‖ *прым.* **но́рдавы**, -ая, -ае.

**НО́РКА**[1], -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Драпежны пушны звярок сямейства куніцавых з густой бліскучай поўсцю, а таксама футра гэтага звярка. ‖ *прым.* **но́ркавы**, -ая, -ае. *Норкавая шуба.*

**НО́РКА**[2] *гл.* нара.

**НО́РМА**, -ы, *мн.* -ы, норм *і* -аў, *ж.* **1.** Устаноўленая мера, сярэдняя велічыня чаго-н. *Н. выпрацоўкі. Н. выпадзення ападкаў.* **2.** *пераважна мн.* Агульнапрызнаныя, узаконеныя ў пэўным асяроддзі правілы паводзін людзей у грамадстве. *Дыпламатычныя нормы.* **3.** Устаноўленае, агульнапрынятае правіла ў мове, літаратуры. *Нормы беларускай літаратурнай мовы.* **4.** Загаловак кнігі, звычайна скарочаны, які даецца дробным шрыфтам на першай старонцы кожнага друкаванага аркуша ўнізе з левага боку (спец.). ◊ **Прыйсці (увайсці) у норму** — прыйсці да звычайнага стану.

**НОС**, -а, *мн.* насы́, насо́ў, *м.* **1.** Орган нюху, які знаходзіцца на твары чалавека або мордзе жывёлы. *Н. з гарбінкай.* **2.** Дзюба ў птушкі. *Бусляняты закідваюць насы ўгору.* **3.** Пярэдняя частка судна, лодкі, самалёта і пад. **4.** Аб выступаючай пярэдняй частцы якога-н. прадмета. **5.** Тое, што і *насок* (у 2 знач.). *Туфлі з вострымі насамі.* ○ **Рымскі нос** — вялікі, правільнай формы нос з гарбінкай. ◊ **Бубніць сабе пад нос** (разм.) — гаварыць вельмі ціха, незразумела. **Вадзіць за нос** *каго* — абяцаць і не выконваць; уводзіць у зман (разм.). **Вярнуць нос** (разм.) — адносіцца да каго-н. з пагардай. **Драць нос** — важнічаць, задавацца (разм.). **З-пад (самага) носа** (узяць, украсці; разм.) — на вачах у каго-н., у непасрэднай блізкасці ад каго-н. **На носе** (разм.) — вельмі скора, у самы блізкі час (адбудзецца што-н.). **Носам рыць** (груб.) — выказваць сваю незадаволенасць кім-, чым-н. **Нос у нос; носам к носу** (разм.) — вельмі блізка адзін да аднаго. **Пад самым носам** (разм.) — блізка, у непасрэднай блізкасці ад каго-, чаго-н. **Пакінуць з носам** *каго* (разм.) — абдурыць, падмануць. **Совацъ нос** (разм., неадабр.) — умешвацца не ў сваю справу. ‖ *памянш.-ласк.* **но́сік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.), **насо́к**, -ска́, *мн.* -скі́, -ско́ў, *м.* (да 1 і 5 знач.). ‖ *прым.* **насавы́**, -а́я, -о́е (да 1 і 3 знач.).

**НО́СІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* нос. **2.** Частка збана, чайніка і пад., праз якую выліваюць вадкасць. **3.** Вострая або завостраная частка якога-н. прадмета. *Н. яйка.*

**НО́СКА** *гл.* несці[1], насіць.

**НО́СКІ**, -ая, -ае. Які доўга носіцца, моцны. *Носкія боты.* ‖ *наз.* **но́скасць**, -і, *ж.*

**НО́СЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які пераносіць ручны багаж на вакзале; насільшчык.

**НО́СЬБІТ**, -а, *М* -біце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, хто валодае, надзелены чым-н., можа быць выразнікам, прадстаўніком чаго-н. *Носьбіты мовы.* **2.** Аб рэчах, прадметах і пад., якія валодаюць якімі-н. уласцівасцямі.

**НО́ТА**[1], -ы, *мн.* -ы, нот, *ж.* **1.** Умоўны графічны знак для запісу гукаў музыкі, а таксама гэты гук. *Высокая н. Гучная н.* **2.** *толькі мн.* Тэкст музычнага твора ў нотным запісе. *Іграць па нотах.* **3.** *перан.* Тон, інтанацыя мовы, якія выражаюць якое-н. пачуццё. *Н. незадаволенасці ў голасе.* ◊ **Як па нотах** — без цяжкасцей, вельмі лёгка. ‖ *памянш.* **но́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (да 1 і 3 знач.). ‖ *прым.* **но́тны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**НО́ТА**[2], -ы, *ДМ* но́це, *мн.* -ы, нот, *ж.* Афіцыйны дыпламатычны зварот урада адной дзяржавы да другой. *Н. пратэсту.* ○ **Вербальная нота** — дыпламатычная нота без подпісу, якая прыраўноўваецца да вуснай заявы. ‖ *прым.* **но́тны**, -ая, -ае.

**НОУ-ХА́У**, *нескл., н.* (спец.). **1.** Незапатэнтаваная навукова-тэхнічная, тэхналагічная, камерцыйная, фінансавая і іншая вынаходка або ідэя, якая з'яўляецца камерцыйнай або службовай тайнай, выкарыстоўваецца ў дзейнасці прадпрыемства і прыносіць даход. *Права на ноу-хау. Ноу-хау ў вытворчасці мабільных тэлефонаў.* **2.** *перан.* Індывідуальнае рашэнне якой-н. праблемы; сакрэт вытворчасці.

**НОЧ**, -ы, *мн.* но́чы, начэ́й, нача́м, нача́мі, нача́х, *ж.* Частка сутак з вечара да раніцы. *Не спаць начамі. Зорная н.* ○ **Палярная ноч** — частка года за Палярным кругам, калі сонца не падымаецца над гарызонтам. ◊ **Ноч у ноч** — кожную ноч. **Рабінавая ноч** — цёмная летняя ноч з громам, маланкай, праліўным дажджом або толькі з бесперапыннымі зарніцамі. ‖ *ласк.* **но́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*, **но́чанька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* *і* **но́чачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **начны́**, -а́я, -о́е.

**НО́ЧЧУ**, *прысл.* У начны час. *Прыехаць н.*

**НО́ША**, -ы, *ж.* Груз, які пераносіцца на сабе. *Цяжкая н.* ‖ *памянш.* **но́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.*

**НО́ШАНЫ**, -ая, -ае. Які быў ва ўжыванні, не новы. *Н. касцюм.*

**НО́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** *гл.* ноша. **2.** Ахапак, вязка (сена, саломы, дроў і пад.). **3.** Здабыча пчалы за адзін вылет.

**НУ**[1], *выкл.* Ужыв. пры падахвочванні да якога-н. дзеяння, а таксама пры здзіўленні, абурэнні, пагрозе і іншых пачуццях. *Ну, расказвай! Ну, годзе ўжо спаць. Ну і надвор'е ж сёння! Ну, помні!*

**НУ**[2], *часц.* **1.** *пыт.*, часта ўжыв. з папярэднім «ды». Выражае здзіўленне сказаным, па знач. адпавядае словам «няўжо», «ці праўда?» *Чуў, што сусед жэніцца? — Ды ну?* **2.** *узмацн.* Надае сказам большую выразнасць, падкрэслівае значэнне таго ці іншага слова. *Дзяўчына, ну, як лялька!* **3.** *сцвярдж.* Так, ага, але (разм.). *Ці праўда, што ты цяпер камерцыйны дырэктар? — Ну.*

**НУВАРЫ́Ш**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Чалавек з ніжэйшага саслоўя, які хутка разбагацеў.

**НУГА́**, -і́, *ДМ* нузе́, *ж.* Кандытарскі выраб з салодкай арэхавай масы.

**НУДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *ж.* **1.** Непрыемны душэўны стан, выкліканы немагчымасцю здзейсніць свае надзеі, жаданні; сум, туга. **2.** Нудны чалавек (разм.). *Эх ты, н. хадзячая!* **3.** Панылась, маркота, журба. *Восеньская н.*

**НУДЗЕ́ЦЬ**, -дзе́ю, -дзе́еш, -дзе́е; *незак., па кім-чым і без дап.* Нудзіцца, сумаваць. *Працы шмат, няма калі н.*

**НУДЗІ́ЦЦА**, нуджу́ся, ну́дзішся, ну́дзіцца; *незак.* Зносіць нуду, быць у стане нуды (у 1 знач.). *Не нудзіся, слязамі гору не паможаш.*

**НУ́ДЗІЦЬ**, -дзіць; *безас., незак.* **1.** Пра млосны стан, які бывае перад ірвотай. **2.** *перан.* Пра адчуванне агіды да каго-, чаго-н. (разм.). *Мяне нудзіць ад яго прамоў.*

**НУДЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Поўны нуды (у 1 знач.), тужлівага настрою. *Н. стан.* **2.** Які наганяе нуду (у 1 і 3 знач.), сум. *Н. шум дажджу.* **3.** Які трывожыць бесперастанку (пра боль і інш.). ‖ *наз.* **нудлі́васць**, -і, *ж.*

**НУ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Невясёлы, маркотны, сумны. **2.** Які наганяе нуду; нецікавы; поўны нуды, тугі. *Нудная песня.* **3.** Які не перастае, трывожыць бесперастанку (пра боль і інш.). ‖ *наз.* **ну́днасць**, -і, *ж.*

**НУДО́ТА**, -ы, *ДМ* -до́це, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што і *нуда* (у 1 і 3 знач.). **2.** Пра млосны стан, які бывае перад ірвотай.

**НУДЫ́ЗМ**, -у, *м.* Грамадскі рух, які вызнае культ аголенага цела. ‖ *прым.* **нуды́сцкі**, -ая, -ае.

**НУДЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік, паслядоўнік нудызму. ‖ *ж.* **нуды́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **нуды́сцкі**, -ая, -ае.

**НУ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., на каго і без дап.* (разм.). Гаворачы «ну», паганяць каня або падганяць скаціну. ‖ *наз.* **ну́канне**, -я, *н.*

**НУКЛЕІ́НАВЫ**, -ая, -ае. У выразе: **нуклеінавыя кіслоты** (спец.) — высокамалекулярныя арганічныя злучэнні, якія

захоўваюць і перадаюць генетычную інфармацыю.

**НУЛЁЎКА**, -і, *ДМ* -лёўцы, *мн.* -і, -лёвак, *ж.* (разм.). Машынка для стрыжкі нагала.

**НУЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* **1.** Лічбавы знак «0», які абазначае адсутнасць велічыні (дабаўлены справа ад лічбы ўдзесяцярае яе). **2.** Умоўная велічыня, адносна якой вызначаецца тэмпература чаго-н. *Дзесяць градусаў ніжэй за нуль.* **3.** *перан.* Пра нязначнага, нікчэмнага чалавека (разм.). *У навуцы гэты чалавек н.* ○ **Абсалютны нуль** — самая нізкая магчымая тэмпература (-273,16 °С). ◊ **Звесці да нуля** — пазбавіць усякага сэнсу, значэння. **Нуль увагі** *на каго-што* (разм.) — ніякай увагі. **Пачаць з нуля** (разм.) — без папярэдняй падрыхтоўкі. **Стрыгчы пад нуль** (разм.) — стрыгчы нагала. ‖ *прым.* **нулявы́**, -а́я, -о́е.

**НУ́МАР**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Парадкавы лік прадмета ў шэрагу яму падобных. *Н. тэлефона. Н. білета.* **2.** Прадмет, абазначаны пэўным лікам па парадку. *Святочны н. газеты.* **3.** Жэтон, планка, ярлык і пад. з адбіткам або малюнкам лічбы. **4.** Размер адзення, абутку і інш. **5.** Асобны пакой у гасцініцы, лазні і пад. **6.** Асобнае закончанае выступленне артыстаў (у тэатры, на канцэрце і пад.). *Сольны н.* **7.** *перан.* Які-н. нечаканы, дзіўны ўчынак (разм.). *Выкінуць н.* ‖ *памянш.* **нумаро́к**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* (да 1 і 5 знач.). ‖ *прым.* **нумарны́**, -а́я, -о́е (да 1 і 5 знач.).

**НУМАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак., каго-што.* Ставіць нумары на кім-, чым-н. ‖ *зак.* **занумарава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны *і* **пранумарава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. ‖ *наз.* **нумара́цыя**, -і, *ж.*

**НУМАРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Апарат для нумаравання (аблігацый, білетаў, квітанцый і пад.). **2.** Прыстасаванне пры электрычным званку, якое паказвае нумары месц, адкуль перадаецца званок (напр., у гасцініцы).

**НУМАРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* нумараваць. **2.** Лічбавае абазначэнне прадметаў, якія змяшчаюцца ў паслядоўным парадку. *Н. кватэр.* **3.** Сукупнасць прыёмаў называння і абазначэння лікаў. *Дзесятковая н.* ‖ *прым.* **нумарацы́йны**, -ая, -ае.

**НУМАРНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* нумар. **2.** Такі, назва якога абазначана толькі нумарам. *Н. завод.*

**НУМІЗМА́Т**, -а, *М* -ма́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па нумізматыцы (у 1 знач.). **2.** Чалавек, які займаецца нумізматыкай (у 2 знач.). ‖ *ж.* **нумізма́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 2 знач.; разм.).

**НУМІЗМА́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае гісторыю старажытных манет, грашовых зліткаў і медалёў. **2.** Калекцыянаванне старажытных манет і медалёў. ‖ *прым.* **нумізматы́чны**, -ая, -ае.

**НУ́НЦЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Пастаянны дыпламатычны прадстаўнік Папы Рымскага ў замежнай дзяржаве.

**НУТРАНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* нутро. **2.** *перан.* Які ідзе як бы з нутра, з сярэдзіны; глухі. *Н. голас. Н. смех.* **3.** Змешчаны ўнутры чаго-н., на ўнутраным баку чаго-н. (разм.). *Нутраная кішэня паліто. Н. замок.*

**НУТРО́**, -а́, *н.* **1.** Унутраныя органы чалавека або жывёлы; вантробы. *Усё н. баліць.* **2.** Унутраная частка чаго-н. *Н. печы.* **3.** *перан.* Унутраная сутнасць каго-н. *Мяшчанскае н. Усё гэта я нутром адчуваю.* ◊ **Заглянуць у нутро** *каму, каго* (разм.) — адгадаць чые-н. думкі, пачуцці. **Пераесці нутро** *каму* (разм., неадабр.) — моцна надакучыць, стаць невыносным для каго-н. ‖ *прым.* **нутраны́**, -а́я, -о́е (да 1 і 3 знач.). *Нутраное сала. Н. свет чалавека.*

**НУ́ТРЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Балотны бабёр; паўводная млекакормячая жывёліна атрада грызуноў з каштоўным футрам, а таксама футра гэтай жывёлы. ‖ *прым.* **ну́трыевы**, -ая, -ае. *Нутрыевая ферма.*

**НЫРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Поўнасцю апускацца ў ваду. **2.** Лётаючы ў паветры, крута і хутка апускацца ўніз. **3.** *перан.* Хутка знікаць з вачэй і зноў з'яўляцца (разм.). *Месяц зрэдку ныраў за воблакі.* **4.** У боксе: ухіляцца ад бакавых удараў праціўніка ў галаву. ‖ *аднакр.* **нырну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **ныра́нне**, -я, *н.*

**НЫ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Орган мочавыдзялення ў чалавека і пазваночных жывёл. *Запаленне нырак.* ‖ *прым.* **ны́рачны**, -ая, -ае. *Ырачныя сасуды.*

**НЫРЭ́Ц**[1], -рца́, *м.* **1.** Скачок у ваду з галавой. *Даць нырца.* **2.** *мн.* -рцы́, -рцо́ў. Той, хто ўмее ныраць, хто добра нырае. *Майстэрства нырцоў.* **3.** У боксе: прыём, калі баксёр хутка прыгінаецца, каб ухіліцца ад бакавых удараў у галаву. ‖ *прым.* **нырцо́ўскі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**НЫРЭ́Ц**[2], -рца́, *мн.* -рцы́, -рцо́ў, *м.* Вадаплаўная птушка сямейства качыных, якая здабывае сабе корм, ныраючы пад ваду. ‖ *прым.* **нырцо́вы**, -ая, -ае. *Нырцовая качка.*

**НЫ́ЦІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які ўвесь час ные, на ўсё скардзіцца. *Надакучлівы н.*

**НЫЦЬ**, ны́ю, ны́еш, ны́е; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Балець (пра адчуванне тупога, цягучага болю). *Зуб ные.* **2.** Надакучліва скардзіцца на што-н. **3.** *перан.* Цягуча, жаласна гусці (разм.). *Ные ў коміне вецер.* ◊ **Сэрца ные** — пра пачуццё непакою, хвалявання. ‖ *наз.* **ныццё**, -я́, *н.*

**НЬЮ́ТАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Адзінка сілы, роўная сіле, якая перадае масе ў 1 кг паскарэнне 1 м/сек$^2$.

**НЭ́НДЗА**, -ы (разм.). **1.** *ж.* Галеча, беднасць, незабяспечанасць сродкамі існавання. *Жыць у нэндзы.* **2.** *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.*; *ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -аў. Той (тая), хто ўвесь час ные, скардзіцца; нуда (у 2 знач.). **3.** *ж.* Тое, што і *нуда* (у 1 знач.). *Захварэць з нэндзы.*

**НЭП**, -а, *м.* Скарачэнне: новая эканамічная палітыка, якая праводзілася савецкай дзяржавай у 1921—1928 гг. з мэтай адраджэння народнай гаспадаркі пры часовым дапушчэнні капіталістычных элементаў, аднак пры захаванні камандных вышынь у руках пралетарскай дзяржавы. ‖ *прым.* **нэ́паўскі**, -ая, -ае.

**НЭ́ПМАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Прыватны прадпрыемец перыяду нэпа; гандляр. ‖ *прым.* **нэ́пманскі**, -ая, -ае.

**НЮА́НС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адценне, тонкае адрозненне ў чым-н. *Музычныя нюансы.* ‖ *прым.* **нюа́нсны**, -ая, -ае.

**НЮ́НІ**. У выразе: **распусціць нюні** (разм.) — раскіснуць, расплакацца.

**НЮ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *м.* і *ж.* (разм.). Плакса, ныцік.

**НЮХ**, -у, *м.* **1.** Здольнасць да ўспрыняцця і адрознівання пахаў (адно з пяці знешніх пачуццяў). *У сабакі добры н.* **2.** *перан.* Чуццё, кемлівасць. *Уяго добры н. на ўсё новае.* ◊ **Ні за нюх (панюх) табакі** (разм.) — ні за што, дарэмна (загінуць, прапасці). **Сабачы нюх** — вострае адчуванне паху.

**НЮ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак.* **1.** *каго-што.* Удыхаць праз нос які-н. пах. *Н. паветра.* **2.** *што.* Удыхаць у нос (лекавы, наркатычны і пад. сродак). *Н. нашатыр.* **3.** *перан.* Выведваць, высочваць (разм.). ◊ **І не нюхаў** *чаго* (разм., неадабр.) — не зведаў чаго-н., не ведае чаго-н. **Не нюхаць пораху** — не быць на вайне, не ваяваць. ‖ *зак.* **паню́хаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 1 знач.). ‖ *аднакр.* **нюхну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **ню́ханне**, -я, *н.; прым.* **ню́хальны**, -ая, -ае. *Н. тытунь.*

**НЮ́ХАЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які нюхае што-н. (тытунь, наркотыкі і пад.). ‖ *ж.* **ню́хальшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**НЯ...** (*гл.* **не...**), *прыстаўка.* Ужыв. замест «не...» ў тых выпадках, калі націск падае на першы пасля прыстаўкі склад, напр.: *нядобры, няшчасце, нядужы.*

**НЯБА́ЧАНЫ**, -ая, -ае. Выключны, незвычайны. *Н. поспех. Н. ўраджай.*

**НЯБА́ЧНЫ**, -ая, -ае. Недаступны для зроку; скрытны. *Н. самалёт.* ‖ *наз.* **няба́чнасць**, -і, *ж.*

**НЯБЕ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* неба. **2.** *перан.* Цудоўны, чароўны, вельмі прыгожы. *Над цудам цуд н. Нябеснае стварэнне.* **3.** Які мае колер неба; светла-блакітны. *Н. колер.* ○ **Нябесныя целы** (спец.) — планеты, каметы, зоркі, галактыкі і іншыя касмічныя аб'екты, што вывучаюцца астраноміяй.

**НЯБО́ЖЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Мёртвы чалавек, мярцвяк. ‖ *ж.* **нябо́жчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **нябо́жчыцкі**, -ая, -ае.

**НЯБО́СЬ**, *часц., у знач. пабочн. сл.* (разм.). Ужыв. для ўзмацнення зместу выказвання ў значэнні: напэўна, відаць. *А мае ж вы родненькія, замарыліся, н.*

**НЯБЫ́Т**, -у, *М* -бы́це, *м.* Адсутнасць быцця, існавання, жыцця. ◊ **Адысці ў нябыт** — не астацца ў памяці людзей.

**НЯВА́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае вялікага значэння; малазначны. *Няважная справа.* **2.** Не зусім добры; дрэнны. *Н. тавар. Н. настрой.* ‖ *наз.* **нява́жнасць**, -і, *ж.*

**НЯВЕ́ДАННЕ**, -я, *н.* Адсутнасць звестак аб чым-н.; адсутнасць ведаў у якой-н. галіне. *Н. замежных моў.*

**НЯВЕ́Р'Е**, -я, *н.* **1.** Адсутнасць веры ў што-н., няўпэўненасць у чым-н. *Працаваць з нявер'ем.* **2.** Адсутнасць веры ў Бога.

**НЯВЕ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які парушае вернасць каму-, чаму-н.; здрадлівы. *Н. сябар.* **2.** Які парушае вернасць у шлюбе. *Н. муж.* **3.** Недакладны ва ўспрыманні. *Н. слых.* **4.** *у знач. наз.* **няве́рны**, -ага, *м.*; **няве́рная**, -ай, *ж., мн.* -ыя, -ых. Той (тая), хто вызнае чужую веру. *Гарэлі вёскі няверных на беразе Дуная.* ‖ *наз.* **няве́рнасць**, -і, *ж.* (да 1—3 знач.).

**НЯВЕ́РУЮЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Той, хто адмаўляе рэлігію, не верыць у існаванне Бога. *Ён н.* ‖ *ж.* **няве́руючая**, -ай, *мн.* -ыя, -ых.

**НЯВЕ́СТА**, -ы, *ДМ* -сце, *мн.* -ы, -ве́ст, *ж.* **1.** Дзяўчына або жанчына, якая выходзіць замуж; маладая. *Жаніх і н.* **2.** Дзяўчына, якая дасягнула шлюбнага ўзросту. *У суседкі дачка ўжо н.*

**НЯВЕ́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Жонка сына. *Як добрая свякроў, то добрая і н.* (прыказка).

**НЯВЕ́ТЛІВЫ**, -ая, -ае. Той, хто парушае правілы ветлівасці, абыходзіцца нязветліва, нетактоўна з іншымі. *Н. чалавек. Н. адказ.* ‖ *наз.* **няве́тлівасць**, -і, *ж.*

**НЯВЕ́ЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *незак.* Станавіцца калекам, калечыцца.

**НЯВЕ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *незак., каго-што.* **1.** Наносячы фізічныя пашкоджанні, калечыць каго-н.; ламаць што-н. *Н. твар.* **2.** *перан.* Рабіць дрэнны ўплыў на каго-н.; псаваць. *Н. душы людзей.* ‖ *наз.* **няве́чанне**, -я, *н.*

**НЯВІ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Недаступны для зроку; нябачны. **2.** Несамавіты, непрыгожы на выгляд. *Нявідная дзяўчынка.*

**НЯВІ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Маральна чысты, бязгрэшны. *Нявіннае дзіця.* **2.** Наіўны, прастадушны. *Нявінныя словы.* **3.** Бяскрыўдны, бясшкодны. *Нявіннае какецтва.* **4.** Цнатлівы. **5.** Тое, што і *невінаваты.* ‖ *наз.* **нявіннасць**, -і, *ж.*

**НЯВО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак., каго (што).* Прымушаць рабіць што-н. супроць жадання, волі. *Яе ніхто не няволіў ехаць туды.* ‖ *зак.* **прыняво́ліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены.

**НЯВО́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Раб, зняволены. **2.** *перан., чаго.* Чалавек, які знаходзіцца пад уплывам, уладаю чаго-н. *Н. пачуццяў.* ‖ *ж.* **няво́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **няво́льніцкі**, -ая, -ае.

**НЯВО́ЛЬНІЦТВА**, -а, *н.* Рабства, няволя. ‖ *прым.* **няво́льніцкі**, -ая, -ае.

**НЯВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які зроблены, адбыўся не наўмысна; выпадковы. *Н. сведка.* **2.** Які адбываецца не па сваёй волі; вымушаны. *Нявольнае расстанне з родным домам.* **3.** Тое, што і *падняволъны* (у 1 знач.). ‖ *наз.* **няво́льнасць**, -і, *ж.*

**НЯВО́ЛЯ**, -і, *ж.* **1.** Адсутнасць незалежнасці, свабоды; палон, рабства. *Загінуць у няволі.* **2.** Патрэба, неабходнасць. *Ахвота горш за няволю* (прымаўка).

**НЯВЫ́ГАДНЫ**, -ая, -ае. Які не дае прыбытку, даходу, не прыносіць выгады. *Нявыгадная здзелка.* ‖ *наз.* **нявы́гаднасць**, -і, *ж.*

**НЯВЫ́ЕЗД**, -у, *М* -дзе, *м.* Бязвыезнае пражыванне на адным месцы. *Даць падпіску аб нявыездзе.*

**НЯВЫ́КРУТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* (разм.). Цяжкае або бязвыхаднае становішча. *Н. з сенам.*

**НЯВЫ́ХАД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (афіц.). Няяўка на працу, прагул.

**НЯГА́ШАНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **нягашаная вапна** (спец.) — вапна ў бязводным стане.

**НЯГЕ́ГЛЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Кволы, слабы; няўдалы. *Н. конь.* **2.** Непрыгожы з выгляду, нязграбны. *Нягеглыя літары.* **3.** Няўмелы, ні да чаго не здатны. *Нягеглая гаспадыня.* ‖ *наз.* **няге́гласць**, -і, *ж.*

**НЯГО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек ганебных, несумленных паводзін; нізкі (у 4 знач.) чалавек. *Ён аказаўся нягоднікам.* ‖ *ж.* **нягодніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **няго́дніцкі**, -ая, -ае.

**НЯГО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Якога нельга выкарыстаць; непрыгодны, дрэнны. *Нягодная сякера.* **2.** Нізкі ў маральных адносінах; паганы, нядобры. *Н. чалавек.* ‖ *наз.* **няго́днасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**НЯГО́ЖЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *нягодны* (у 1 знач.).

**НЯГРЭ́БЛІВЫ**, -ая, -ае. Просты, без прэтэнзій, які задавальняецца самым малым. *Н. густ. Н. чалавек.* ‖ *наз.* **нягрэ́блівасць**, -і, *ж.*

**НЯГУ́СТА**, *безас., у знач. вык., каго-чаго* (разм.). Мала, нямнога. *Грошай у нас н.*

**НЯДА́ЎНІ**, -яя, -яе. **1.** Які адбыўся ў недалёкім мінулым, незадоўга да сучаснага моманту; які існуе мала часу. *Нядаўнія падзеі. Мы прыйшлі сюды нядаўна* (прысл.). *Нядаўняе знаёмства.* **2.** Які быў кім-н. незадоўга да сучаснага моманту. *Н. сусед.*

**НЯДБА́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які абыякава адносіцца да сваіх абавязкаў; лянівы. *Н. гаспадар.* ‖ *наз.* **нядба́йнасць**, -і, *ж.*

**НЯДБА́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* (разм.). Нядбалы, лянівы чалавек. ‖ *ж.* **нядба́ліца**, -ы, *мн.* -ы, -ліц. ‖ *прым.* **нядба́льскі**, -ая, -ае.

**НЯДБА́ЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *нядбайны.* ‖ *наз.* **нядба́ласць**, -і, *ж.*

**НЯДЗЕ́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, -дзе́ль; *ж.* Сёмы дзень тыдня, агульны дзень адпачынку. ‖ *прым.* **нядзе́льны**, -ая, -ае.

**НЯДО́БРА**, *безас., у знач. вык.* **1.** Дрэнна, не па душы. *Усё яму н.* **2.** *каму.* Пра цяжкі фізічны або душэўны стан. *Што табе н., мая галубка? Можа вадзіцы вып'еш?*

**НЯДОБРАЗЫЧЛІ́ВЕЦ**, -ліўца, *мн.* -ліўцы, -ліўцаў, *м.* Чалавек, які нядобразычліва настроены ў адносінах да каго-, чаго-н. ‖ *ж.* **нядобразычлі́віца**, -ы, *мн.* -ы, -ліві́ц.

**НЯДОБРАЗЫЧЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які не зычыць дабра каму-н.; выражае непрыязнасць да каго-, чаго-н. *Нядобразычлівыя адносіны.* ‖ *наз.* **нядобразычлі́васць**, -і, *ж.*

**НЯДОБРАСУМЛЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які абыякава, без старання выконвае свае абавязкі. *Н. працаўнік.* **2.** Заснаваны на нядбайстве, на несумленных адносінах да чаго-н. *Н. ўчынак.* **3.** Выкананы без шчырасці і старання. *Нядобрасумленная работа.* ‖ *наз.* **нядобрасумле́ннасць**, -і, *ж.*

**НЯДО́БРЫ**, -ая, -ае. **1.** Які непрыязна настроены да людзей, злосны. *Н. чалавек. Нядобрая ўсмешка.* **2.** Непрыемны, кепскі. *Нядобрыя весці. Пачуць сэрцам нядобрае* (наз.). **3.** Дрэнны, заганны ў маральным плане. *Нядобрая рыса характару.* **4.** Варты дрэннай ацэнкі; не такі, якім павінен быць. *Н. тавар.*

**НЯДО́ІМКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* Частка падатку, збору, не ўнесеная плацельшчыкам у тэрмін. *Плаціць нядоімку.* ‖ *прым.* **нядо́імкавы**, -ая, -ае.

**НЯДО́ІМШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Плацельшчык, за якім лічыцца нядоімка.

**НЯДО́ШЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Слабы, худы. *Н. конь.*

**НЯДУ́ЖАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Недамагаць, хварэць.

**НЯДУ́ЖЫ**, -ая, -ае. Слабы фізічна; хваравіты. *Н. дзядок.* ‖ *наз.* **няду́жасць**, -і, *ж.*

**НЯДУ́ЖЫЦЦА**, -жыцца; *безас., незак.* Нездаровіцца. *Апошнія гады старому нядужылася.*

**НЯЁМКА**, *безас., у знач. вык.* **1.** Пра адчуванне нязручнасці, невыгоды, выкліканых чым-н. *Было н. сядзець.* **2.** Пра пачуццё збянтэжанасці, сораму, якое перажывае хто-н. *Ёй стала н. ад такіх слоў.*

**НЯЁМКІ**, -ая, -ае. **1.** Такі, у якім нязручна быць, знаходзіцца. *Няёмкая поза.* **2.** Непрыемны, цяжкі. *Трапіць у няёмкае становішча.* **3.** Не зусім прыстойны, недазволены этыкай; недарэчны. *Няёмка* (прысл.) *умешвацца ў размову бацькоў.* ‖ *наз.* **няёмкасць**, -і, *ж.*

**НЯЗВА́НЫ**, -ая, -ае. Які з'явіўся куды-н. без запрашэння. *Н. госць.*

**НЯЗБЫ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, што не можа збыцца; нездзяйсняльны. *Нязбытныя планы.* **2.** Такі, якога нельга або цяжка пазбыцца. *Н. сум. Нязбытная туга.* ‖ *наз.* **нязбы́тнасць**, -і, *ж.*

**НЯЗВЕ́ДАНЫ**, -ая, -ае. Які не даследавалі, не вывучылі раней; зусім незнаёмы. *Н. край. Нязведанае пачуццё.* ‖ *наз.* **нязве́данасць**, -і, *ж.*

**НЯЗВЫ́КЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *нязвычны.* ‖ *наз.* **нязвы́класць**, -і, *ж.*

*зак., каго-што.* Адапхнуць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. крыгі ад берага.*

**ПААДПО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Адпароць адно за адным усё, многае ці ў многіх месцах. *П. падкладку з бакоў.*

**ПААДПРАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., каго-што.* Адправіць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. пасылкі.*

**ПААДПУСКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Адпусціць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. супрацоўнікаў у адпачынак. П. бароды.*

**ПААДРАЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Адрэзаць усё, многае. *П. карэньчыкі грыбоў.*

**ПААДРАСТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Адрасці ў многіх месцах, на ўсіх, многіх. *На вярбе паадрасталі галінкі.*

**ПААДРЫВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Адарвацца — пра ўсё, многае. *Гузікі паадрываліся.*

**ПААДРЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Адарваць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. дошкі ад сцяны. П. людзей ад работы.*

**ПААДСА́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** Пра многае — аддзяліўшы, пасадзіць на новае месца. *П. буракі.* **2.** *што.* Пра многае — замест таго, што прапала, згінула, пасадзіць зноў. *П. бульбу.* **3.** *каго.* Пра многіх — прымусіць сесці асобна. *П. вучняў на асобныя парты.* **4.** *каго.* Пра многіх — адняць ад маці. *П. цялят.*

**ПААДСКРАБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Адскрэбці, саскрэбці што-н. у многіх месцах або ўсё, многае. *П. кроплі фарбы.*

**ПААДСО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Адсунуць усё, многае. *П. сталы ад вокнаў. П. засоўкі.*

**ПААДСТАВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ста́е; -стаём, -стаяце́, -стаю́ць; *зак.* **1.** Адстаць — пра ўсіх, многіх. *Вучні, што хварэлі, паадставалі па матэматыцы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Перастаць шчыльна прылягаць — пра ўсё, многае. *Падэшвы паадставалі.*

**ПААДСТАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Адставіць убок усё, многае. *П. крэслы.*

**ПААДСЫПА́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Адсыпацца — пра нейкую колькасць чаго-н. з усіх або ў многіх месцах. *Атынкоўка паадсыпалася.*

**ПААДСЫПА́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Адаспацца, выспацца — пра ўсіх, многіх. *П. пасля дарогі.*

**ПААДСЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *што.* Адсеяць нанава ўсё, многае. *П. азімыя.* **2.** *перан., каго.* Павыключаць многіх. *П. непаспяваючых студэнтаў.*

**ПААДСЯКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Адсячы што-н. у многіх месцах або ўсё, многае. *П. сухія галіны. П. шляхі да адступлення.*

**ПААДЦВІТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Адцвісці — пра ўсё, многае. *Кветкі паадцвіталі.*

**ПААДЦІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Адцерці ўсё, многае або вярнуць адчувальнасць расціраннем усяму, многаму. *П. плямы. П. абмарожаныя вушы.*

**ПААДЦЯ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Адцягнуць, перамясціць куды-н. усё, многае або ўсіх, многіх. *П. жэрдзе.*

**ПААДЧЫНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Адчыніць усё, многае або што-н. у многіх месцах. *П. вокны.*

**ПААДЧЫШЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* Адчысціць усё, многае. *П. адзенне.*

**ПААДШПІ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Адшпіліць адно за другім усё, многае. *П. гузікі.*

**ПААДШРУБО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Адшрубаваць адно за другім усё, многае. *П. гайкі.*

**ПААДШУ́КВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Адшукаць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. сваякоў. П. згубленыя рэчы.*

**ПААКУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Акучыць усё, многае. *П. бульбу.* **2.** *і без дап.* Акучваць некаторы час. *П. да паўдня.*

**ПААПАДА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Апасці — пра ўсё, многае. *Лісце паападала з дрэў.*

**ПААПРАНА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Апрануцца — пра ўсіх, многіх. *Госці паапраналіся і паехалі.*

**ПААПРАНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *каго-што.* Апрануць, забяспечыць вопраткай усіх, многіх. *Цёпла п. дзяцей.* **2.** *што.* Надзець на сябе многа чаго-н. *П. на сябе ўсё новае.*

**ПААПУСКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *каго-што.* Апусціць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. крылы.* **2.** *што.* Павыкрэсліваць у тэксце (непатрэбныя цытаты).

**ПААПУХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Апухнуць, ацячы — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае. *Ногі паапухалі.*

**ПААПЯКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Апячы ўсіх, многіх або ўсё, многае. *П. рукі.*

**ПААРА́ЦЬ**, -ру́, -рэ́ш, -рэ́; -ро́м, -рацé, -ру́ць; -ры́; -ра́ны; *зак., што.* **1.** Узараць усё, многае. *П. усе палеткі.* **2.** *і без дап.* Араць некаторы час. *П. да паўдня.*

**ПААРФАВА́ЦЬ**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны; *зак., што.* **1.** Ачысціць арфай усё або вялікую колькасць чаго-н. *П. усё збожжа.* **2.** *і без дап.* Арфаваць некаторы час. *П. некалькі гадзін.*

**ПААРЫШТО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго.* Арыштаваць усіх, многіх. *Злачынцаў паарыштоўвалі.*

**ПААСКУБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны і **ПААСКУ́БВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго (што).* Аскубваючы, ачысціць ад пер'я. *П. курэй.* **2.** *што.* Абраўнаваць граблямі ўсё, многае. *П. вазы з саломай.*

**ПААСМА́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* **1.** Асмаліць[1] у многіх месцах, усё, многае або ўсіх, многіх. *П. бакі армяка. П. вусы.* **2.** Апаліць з усіх бакоў. *П. слупы.*

**ПААСМО́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Прасмаліць, пакрыць смалой усё, многае. *П. лодкі.*

**ПААСО́БКУ**, *прысл.* **1.** Па адным, не разам. *Гаварыць з кожным п.* **2.** Асобна, разлучыўшыся. *Сем'і бацькі і сына жывуць п.*

**ПААСО́БНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які існуе, дзейнічае самастойна побач з іншымі. *Мелі поспех не толькі калектывы, але і паасобныя выканаўцы.* **2.** Адзінкавы, рэдкі. *Апладзіравалі паасобныя гледачы.* **3.** Ізаляваны ад іншых, не звязаны з іншымі. *Жыць у паасобным пакоі.*

**ПААСТАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -тае́цца; -таёмся, -таяце́ся, -таю́цца; *зак.* **1.** Астацца дзе-н. — пра ўсіх, многіх або быць пакінутым дзе-н. — пра ўсё, многае або ўсіх, многіх. *Жнеі пааставаліся ў полі да вечара. На градах яшчэ пааставалася многа агародніны.* **2.** Не перастаць быць якім-н., кім-н. — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Вокны пааставаліся адчыненымі.* **3.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Захавацца, уцалець — пра ўсё, многае. *На падлозе пааставаліся сляды.* **4.** Апынуцца ў якім-н. стане — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Пасля вайны жанчыны пааставаліся ўдовамі.* **5.** Апынуцца ззаду, збоку — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Старыя ісці не паспявалі і пааставаліся ззаду.*

**ПААСТРЫГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Тое, што і *паабстрыгаць.*

**ПААСУ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Асушыць усё, многае. *П. балоты.*

**ПААТРАСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Атрэсці ўсё або вялікую колькасць чаго-н. *П. усе яблыкі.*

**ПААТРУ́ЧВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся; -аецеся, -аюцца; *зак.* Атруціцца — пра ўсіх, многіх. *П. грыбамі.*

**ПААТРУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Атруціць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. тараканаў.*

**ПААЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Тое, што і *паабцярэбліваць.*

**ПААЧЫШЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Ачысціць усё, многае. *П. насенне.*

**ПАБАГАЦЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Стаць багацейшым. *Пабагацею і спраўлю новы гарнітур.*

**ПАБАДЗЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* (разм.). **1.** Пацягацца; павандраваць. *П. па свеце.* **2.** Пахадзіць, паблукаць без пэўнай мэты. *П. па базары.*

**ПАБАЖЫ́ЦЦА** *гл.* бажыцца.

**ПА-БА́НКУ**, *прысл.* У картачных гульнях: на ўсе грошы, якія маюцца ў банку (у 2 знач.). *Ісці па-банку.*

**ПАБАРАНАВА́ЦЬ** *гл.* баранаваць.

**ПАБАРВАВЕ́ЦЬ** *і* **ПАБАРВО́ВЕЦЬ** *гл.* барвавець.

**ПАБАРВЯНЕ́ЦЬ** *гл.* барвянець.

**ПАБАРО́ЦЦА**, -бару́ся, -бо́рашся, -бо́рацца; -бары́ся; *зак., з кім.* Аказваць супраціўленне каму-н. у барацьбе на працягу якога-н. часу.

**ПАБАРО́ЦЬ**, -бару́, -бо́раш, -бо́ра; -бары́; *зак., каго (што).* Перамагчы праціўніка ў спартыўнай барацьбе. *П. вядомага барца.*

**ПАБАТАЛЬЁННЫ**, -ая, -ае. Пра ваенны строй: які раздзяляўся на батальёны, батальёнамі. *Пабатальённае пастраенне.*

**ПАБА́ЧЫЦЦА** *гл.* бачыцца.

**ПАБА́ЧЫЦЬ** *гл.* бачыць.

**ПАБАЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* У выразе: **да пабачэння** — ветлівыя словы, якія гаворацца пры развітанні.

**ПАБАЯ́ЦЦА**, -баю́ся, -баі́шся, -баі́цца; -баі́мся, -баіце́ся, -бая́цца; -бо́йся; *зак., каго-чаго, з інф.* і *з дадан. сказам.* Не адважыцца зрабіць што-н. *П. завірухі. Пабаялася ісці адна. Я пабаяўся, што мяне там заўважаць.*

**ПАБЕ́ГЧЫ**, -бягу́, -бяжы́ш, -бяжы́ць; -бяжы́м, -бежыце́, -бягу́ць; -бе́г, -гла; -бяжы́; *зак.* **1.** *гл.* бегчы. **2.** Пачаць бегчы (пра людзей, жывёл). *П. па бацьку.*

**ПАБЕ́ЛКА** *гл.* пабяліць.

**ПАБЕРАГЧЫ́**, -рагу́, -ражэ́ш, -ражэ́; -ражо́м, -ражаце́, -рагу́ць; пабяро́г, -берагла́, -гло́; -ражы́; *зак., каго-што.* **1.** Часова ўзяць пад сваю ахову, не дапусціць страты чаго-н., захаваць. *П. чужыя рэчы. П. грошы.* **2.** Аднесціся да каго-, чаго-н. беражліва, клапатліва. *П. хворую сястру. Не хвалюйся, паберажы сваё здароўе!*

**ПАБЕРАГЧЫ́СЯ**, -берагу́ся, -беражэ́шся, -беражэ́цца; -беражо́мся, -беражаце́ся, -берагу́цца; -бяро́гся, -беракла́ся, -ло́ся; -беражы́ся; *зак.* Аднесціся да сябе, да свайго здароўя беражліва, пазбягаючы ўсяго неспрыяльнага. *Трэба п., каб не прастудзіцца.*

**ПАБІ́ЦЦА**, -б'ю́ся, -б'е́шся, -б'е́цца; -б'ёмся, -б'яце́ся, -б'ю́цца; пабі́ся; *зак.* **1.** *гл.* біцца. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Быць разбітым, пацісканым, патоўчаным ад удараў, штуршкоў і пад. *Яблыкі пабіліся ў дарозе. Шыба пабілася.*

**ПАБІ́ЦЬ**, -б'ю́, -б'е́ш, -б'е́; -б'ём, -б'яце́, -б'ю́ць; -бі́; -бі́ты; *зак.* **1.** *гл.* біць. **2.** *каго (што).* Забіць у якой-н. колькасці, перабіць. *Ён сотні ворагаў пабіў.* **3.** *каго (што).* Перамагчы ў спаборніцтве, гульні, спрэчцы. *У штурханні ядра ён пабіў усіх.* **4.** *што.* Пашкодзіць (пасевы і інш.). *Град пабіў жыта.* **5.** *што.* Разбіўшы, знішчыць, паламаць што-н. адно або ўсё, многае. *П. талерку. П. пасуду.* **6.** *што.* Сапсаваць, пашкодзіць (пра воспу, моль і пад.). *Моль пабіла паліто. Воспа пабіла твар.* **7.** *што.* Узнікнуць; усыпаць або пакрыцца чым-н. *Бровы пабіла сівізна.* **8.** *што.* У картачнай гульні: пакрыць карту партнёра старшай картай.

**ПАБЛА́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* (разм.). Нястрогія, паблажлівыя адносіны да каго-н. *Даваць каму-н. паблажку.*

**ПАБЛА́ЖЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Нястрогі, непатрабавальны. *Паблажлівыя адносіны.* **2.** Мяккі, велікадушны. *П. лёс.* ‖ *наз.* **пабла́жлівасць**, -і, *ж.*

**ПАБЛАЖЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Схуднелы; непрывабны. *П. твар.*

**ПАБЛАЖЭ́ЦЬ** *гл.* блажэць.

**ПАБЛІ́ЗУ**, *прысл.* і *прыназ.* **1.** *прысл.* Блізка, непадалёку. *Рэчка ёсць п.* **2.** *прыназ. з Р.* Указвае на размяшчэнне блізка ад чаго-н. *Вёска стала п. возера.*

**ПАБЛУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** Пахадзіць у пошуках дарогі. **2.** Павандраваць, пахадзіць у вольны час (разм.). *П. каля возера.*

**ПАБЛЫ́ТАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Пераплесціся паміж сабой, пераблытацца. *Ніткі паблыталіся.*

**ПАБЛЫ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Зблытаць, пераблытаць. *П. дрот.* **2.** Прыняць адно за другое. *Я гэта ні з чым не паблытаю.*

**ПАБЛЯДНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаў бледным. *П. твар.* **2.** Які страціў свае яркія фарбы, стаў цьмяным. *Паблядпелыя зоркі.*

**ПАБЛЯДНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Стаць бледным ці бляднейшым.

**ПАБЛЯ́КЛЫ**, -ая, -ае. Які страціў свежасць, яркасць. *Пабляклыя фарбы. Пабляклая кветка.*

**ПАБЛЯ́КНУЦЬ** *гл.* блякнуць.

**ПАБО́І**, -бо́яў. Удары па жывым целе, збіванне. *Сляды пабояў. Цярпець п.*

**ПАБО́ІШЧА**, -а, *н.* **1.** Бітва з вялікай колькасцю ахвяр. *Мамаева п.* (назва Кулікоўскай бітвы, у якой быў разбіты татарскі хан Мамай). **2.** Жорсткая бойка (разм). *Удзельнічаць у вулічным пабоішчы.*

**ПАБО́ЙВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Адчуваць лёгкі страх. *П. ісці лесам ноччу.*

**ПАБО́ЛЬВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* Крыху або зрэдку балець. *Зуб пабольвае.*

**ПАБО́ЛЬШАЦЬ** *гл.* большаць.

**ПАБО́ЛЬШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., што.* Зрабіць большым па колькасці, памеры, аб'ёме і пад. *П. зямельны надзел.*

**ПАБО́РЫ**, -аў, *адз.* пабо́р, -у, *м.* **1.** Празмерныя, непасільныя падаткі ці зборы. **2.** *перан.* Неафіцыйныя зборы сродкаў на што-н. (разм.).

**ПАБО́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які існуе побач з галоўным, асноўным, другарадным. *П. тыпаж у п'есе.* **2.** Не свой, які не належыць да дадзенага грамадства, установы, сям'і і пад. *Пабочным* (наз.) *уваход забаронены.* **3.** Які не мае непасрэдных адносін да чаго-н. *Пабочныя меркаванні.* **4.** Народжаны без шлюбу (уст.). *П. сын.* ○ **Пабочнае слова** або **пабочны сказ** — у граматыцы: інтанацыйна адасобленае слова ці сказ унутры другога сказа, якія выражаюць розныя віды адносін таго, хто гаворыць, да таго, пра што ён гаворыць.

**ПАБРАЗГАТА́ЦЬ** *гл.* бразгатаць.

**ПАБРА́ЗГАЦЬ** *гл.* бразгаць.

**ПАБРА́ТАЦЦА** *гл.* братацца.

**ПАБРАЦІ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які ўступіў у пабрацімства з кім-н. *Гарады-пабрацімы* (перан.: пародненыя гарады). ‖ *прым.* **пабрацімскі**, -ая, -ае.

**ПАБРАЦІ́МСТВА**, -а, *н.* Старажытны славянскі звычай замацавання мужчынскай дружбы прыраўноўваннем яе да братніх адносін. *П. франтавікоў.*

**ПАБРА́ЦЬ**, -бяру́, -бярэ́ш, -бярэ́; -бяро́м, -берац́е, -бяру́ць; -бяры́; -бра́ны; *зак., каго-што.* Узяць, забраць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. усе рэчы.*

**ПАБРЫСЦІ́**, -ыду́, -ыдзе́ш, -ыдзе́; -ыдзём, -ыдзяце́, -ыду́ць; -ы́ў, -ыла́, -ло́; -ыдзі́; *зак.* Пайсці павольна, з цяжкасцю перастаўляючы ногі.

**ПАБРЫ́ЦЦА** *гл.* брыць.

**ПАБРЫ́ЦЬ** *гл.* брыць.

**ПАБУДАВА́ЦЦА** *гл.* будавацца.

**ПАБУДАВА́ЦЬ** *гл.* будаваць.

**ПАБУДЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які выклікае жаданне, прымушае дзейнічаць. *Пабуджальныя прычыны. Пабуджальныя сказы.*

**ПАБУДЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго (што) да чаго* і *з інф.* (кніжн.). Выклікаць жаданне рабіць што-н.; прымушаць да чаго-н. *П. да высакародных паводзін. П. дзейнічаць.*

**ПАБУДЗІ́ЦЬ** *гл.* будзіць.

**ПАБУ́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* (спец.). Сігнал да абуджэння. *Ранішняя п.*

**ПАБУДО́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -до́ў, *ж.* **1.** *гл.* будаваць. **2.** Будова (у 1 знач.); структура, канструкцыя. *П. сказа. Жалезабетонная п.* **3.** Вучэнне, тэорыя, сістэма разважанняў (кніжн.). *Лагічныя пабудовы.*

**ПАБУЙНЕ́ЦЬ** *гл.* буйнець.

**ПАБУРЭ́ЦЬ** *гл.* бурэць.

**ПАБЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** Паездзіць, пахадзіць (па многіх месцах). *П. на Каўказе і ў Крыме.* **2.** Пабыць, пажыць дзе-н. *П. на поўдні.* **3.** Зайсці куды-н., наведаць каго-, што-н. *П. у бацькоў.*

**ПАБЫ́ЎКА**, -і, *ДМ* -бы́ўцы, *мн.* -і, -бывак *ж.* У выразе: **на пабы́ўку** (разм.) — у водпуск на кароткі час (пераважна пра ваеннаслужачых). *Адпусціць на пабыўку.*

**ПАБЫ́ЦЬ**, -бу́ду, -бу́дзеш, -бу́дзе; пабы́ў, -была́, -ло́; пабудзь; *зак.* Прабыць некаторы час дзе-н. *П. у горадзе тры дні. Пабудзь у нас.*

**ПАБЯГУ́ШКІ**, -шак. У выразе: **на пабягушках** (разм.) — для дробных паслуг, на пасылках. *Хлопчык быў у іх на пабягушках.*

**ПАБЯЛЕ́ЦЬ** *гл.* бялець.

**ПАБЯЛІ́ЦЬ** *гл.* бяліць.

**ПАБЯЛЯ́НЫ**, -ая, -ае. Пакрыты ўнутры белай палівай, эмаллю, эмаліраваны. *П. чыгун.*

**ПА́ВА**, -ы, *мн.* -ы, па́ваў, *ж.* Самка паўліна. ‖ *прым.* **паві́ны**, -ая, -ае.

**ПАВА́БІЦЬ** *гл.* вабіць.

**ПАВА́БНЫ**, -ая, -ае. Які вабіць да сябе, прывабны. *Павабная знешнасць. Павабная ўсмешка.* ‖ *наз.* **пава́бнасць**, -і, *ж.*

**ПАВА́ГА**, -і, *ДМ* -ва́зе, *ж.* Пачцівыя адносіны, выкліканыя прызнаннем чыіх-н. высокіх якасцей, заслуг. *Выхоўваць павагу да старэйшых. Карыстацца павагай.*

**ПАВАГА́ЦЦА** *гл.* вагацца.

**ПАВАГА́ЦЬ** *гл.* вагаць.

**ПАВАДЗІ́ЦЬ**, -ваджу́, -во́дзіш, -во́дзіць; -во́джаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Водзячы, прымусіць хадзіць на працягу якога-н. часу. *П. каня. П. гасцей па горадзе.* **2.** *чым.* Зрабіць некалькі рухаў чым-н. па паверхні або ў розных напрамках. *П. указкай па карце.*

**ПАВАДО́ВЫ** *гл.* повад.

**ПАВАДО́К**, -дка́, *мн.* -дкі́, -дко́ў, *м.* Кароткі повад, а таксама рэмень, на якім водзяць сабак. *Узяць сабаку на п.* ◊ **Ісці на павадку** *ў каго* (разм., неадабр.) — знаходзіцца ў залежнасці ад каго-н. ‖ *прым.* **павадко́вы**, -ая, -ае.

**ПАВАДЫ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Той, хто водзіць каго-н., дапамагае каму-н. ісці. *Сляпы сляпому не п.* (прыказка). *П. мядзведзя. Сабакі-павадыры.*

**ПАВАЖА́НЫ**, -ая, -ае. Які выклікае пачуццё павагі, да якога адчуваюць павагу. *П. чалавек. Паважаныя таварышы* (ветлівы зварот). *Паслухайце, п.!* (наз.; фамільярны зварот).

**ПАВАЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *каго-што.* Адносіцца з павагай да каго-, чаго-н. *П. старэйшых. П. чужую думку. Прымусіць сябе п.* **2.** *што.* Любіць, цаніць што-н. *П. тэатральнае мастацтва. П. рыбалку.*

**ПАВА́ЖЛІВЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да каго-н. з павагай. *П. сын. Паважліва* (прысл.) *аднесціся.* ‖ *наз.* **пава́жлівасць**, -і, *ж.*

**ПАВА́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Важны, поўны годнасці, самавітасці. *Хадзіць з паважным выглядам.* **2.** Спакойны, павольны. *Паважныя рухі.* **3.** Немалады. *П. ўзрост.* ‖ *наз.* **пава́жнасць**, -і, *ж.*

**ПАВА́ЖЫЦЦА**[1] *гл.* паважыць.

**ПАВА́ЖЫЦЦА**[2], -жуся, -жышся, -жыцца; *зак.* Пасмець, асмеліцца. *П. аспрэчваць думкі лектара.*

**ПАВА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., каго-што.* **1.** Вызначыць вагу, цяжар каго-, чаго-н. *П. мяхі з жытам. П. сумку ў руцэ.* **2.** Узважыць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. усю бульбу.* ‖ *звар.* **пава́жыцца**, -жуся, -жышся, -жыцца (да 1 знач.).

**ПАВАЗІ́ЦЦА**, -важу́ся, -во́зішся, -во́зіцца; *зак.* Правесці некаторы час, возячыся на чым-н. *П. на санках.*

**ПАВАЗІ́ЦЬ**, -важу́, -во́зіш, -во́зіць; -во́жаны; *зак., каго-што.* **1.** Правесці некаторы час, возячы каго-, што-н. *П. па горадзе.* **2.** Звесці, перавезці ўсё, многае. *П. усё сена.*

**ПАВА́Л**, -у, *м.* Павалены лес, буралом. *У лесе многа павалу.*

**ПАВАЛІ́ЦЦА** *гл.* валіцца.

**ПАВАЛІ́ЦЬ**[1] *гл.* валіць[1].

**ПАВАЛІ́ЦЬ**[2] *гл.* валіць[2].

**ПАВАЛО́КА**, -і, *ДМ* -ло́цы, *ж.* **1.** Лёгкая дымка, якая зацягвае, пакрывае што-н. *Сонца прабівалася праз павалоку хмар.* **2.** У выразе: **вочы з павалокай** — з пяшчотным, млявым, нібы затуманеным позіркам. *Вочы карыя з павалокай.*

**ПАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які ахоплівае ўсіх, многіх; пагалоўны. *Павальныя хваробы.* ‖ *наз.* **пава́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАВАЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* Правесці некаторы час валяючыся. *П. на сене.*

**ПАВАРАЖЫ́ЦЬ** *гл.* варажыць.

**ПАВАРО́Т**, -у, *М* -ро́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* павярнуцца, павярнуць. **2.** Месца, дзе паварочваюць. *Выйсці з-за павароту.* **3.** *перан.* Поўная змена ў развіцці чаго-н.; пералом. *П. у жыцці. П. лёсу.*

**ПАВАРО́ТЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны лёгка і хутка паварочвацца. *Паваротлівая лодка.* **2.** Увішны, спрытны, разбітны. *Паваротлівая гаспадыня. Ён чалавек п.* ‖ *наз.* **паваро́тлівасць**, -і, *ж.*

**ПАВАРО́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які служыць для павароту, паварочвання чаго-н. *Паваротныя механізмы.* **2.** *перан.* Пераломны, пасля якога пачынаецца нешта новае. *П. перыяд у развіцці грамадства.*

**ПАВАРО́ЧАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Вярнуць назад многіх.

**ПАВАРО́ЧАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Абярнуць, перавярнуць усё, многае. *П. усе крэслы.* **2.** Перавярнуць на другі бок для прасушвання. *П. сена.*

**ПАВАРО́ЧВАЦЦА**, -ваюся, -ваешся, -ваецца; *незак.* **1.** *гл.* павярнуцца. **2.** *перан.* Дзейнічаць хутка, умела, аператыўна (разм.). *Хутчэй паварочвайся!*

**ПАВАРО́ЧВАЦЬ** *гл.* павярнуць.

**ПАВАРУХНУ́ЦЦА** *гл.* варушыцца.

**ПАВАРУХНУ́ЦЬ** *гл.* варухнуць.

**ПАВАРУ́ШВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Варушыцца злёгку або час ад часу. *Стары паварушваўся на печы.*

**ПАВАРУ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што* або *чым.* Варушыць крыху або час ад часу. *Вецер паварушвае галіны. П. пальцамі.*

**ПАВАРУШЫ́ЦЦА** *гл.* варушыцца.

**ПАВАРУШЫ́ЦЬ** *гл.* варушыць.

**ПАВАРЧУ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Падлетак — памочнік повара на кухні.

**ПАВАРЫ́ХА** *гл.* повар.

**ПАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -ва́рыш, -ва́рыць; -ва́раны; *зак., што.* **1.** Зварыць усё, многае. *П. усё мяса.* **2.** Варыць яшчэ некаторы час. *П. мяса хвілін дваццаць.*

**ПАВАСТРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *зак.* Зрабіцца больш вострым. *Сярпы павастрэлі.*

**ПАВЕ́ДАМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак., каму, што, аб кім-чым, пра каго-што* і са злуч. «што». Давесці да ведама. *П. аб здарэнні на рэактары. П. апошнія звесткі.* ‖ *незак.* **паведамля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **паведамле́нне**, -я, *н.*

**ПАВЕ́ЗЦІ**[1], -вязу́, -вязе́ш, -вязе́; -вязём, -везяце́, -вязу́ць; павёз, -вёзла; -ве́зены; *зак.* Пачаць везці[1], адправіцца куды-н., везучы каго-, што-н. *Наклаў воз як каню п.*

**ПАВЕ́ЗЦІ**[2] *гл.* везці[2].

**ПАВЕ́К**, *прысл.* Назаўсёды, навек. *П. гэтага не забуду.*

**ПАВЕ́КА**, -а, *мн.* -і, -аў, *н.* Рухомая складка скуры, якая прыкрывае вока. *Апусціць павекі.*

**ПАВЕЛІЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які служыць для павелічэння таго, што разглядаецца. *Павелічальнае шкло.* **2.** У граматыцы: звязаны з утварэннем назоўнікаў і прыметнікаў, якія абазначаюць большы памер прадмета ці большую ступень якасці, а таксама эмацыянальныя адносіны (напр.: *дамішча, велічэзны*). *Павелічальныя суфіксы.*

**ПАВЕЛІЧЭ́ННЕ** *гл.* павялічыцца, павялічыць.

**ПАВЕ́РАНЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* (кніжн.). Асоба, афіцыйна ўпаўнаважаная дзейнічаць ад чыйго-н. імя. ○ **Прысяжны паверaны** — адвакат у царскай Расіі. **Прысяжны ў справах** — дыпламатычны прадстаўнік, ніжэйшы на ранг за пасла ці пасланніка.

**ПАВЕ́Р'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Паданне, заснаванае на забабонах. *Народныя павер'і.*

**ПАВЕ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Пераклічка, якая робіцца для праверкі наяўнасці людзей. *Ранішняя п. салдат.*

**ПАВЕ́РСЕ**, *прысл.* **1.** Па верхняй частцы, верхам. *Пажар ішоў п.* **2.** Зверху, паверх чаго-н. *Падперазаўся п. вузенькай папружкай.*

**ПАВЕ́РХ**[1], -а, *М* -рсе, *мн.* -і, -аў, *м.* Частка будынка, у якой памяшканні знаходзяцца на адным узроўні. *Жыць на пятым паверсе. Падвальны п.*

**ПАВЕ́РХ**[2], *прыназ. з Р.* **1.** Ужыв. пры абазначэнні паверхні, вышэй якой або на некаторай адлегласці ад якой што-н. размяшчаецца ці адбываецца. *Глядзець п. акуляраў.* **2.** На паверхні чаго-н. *Прылегчы на ложак п. коўдры.*

**ПАВЕ́РХНЕВЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца, адбываецца на паверхні, каля паверхні. *П. слой глебы. Паверхневае дыханне* (неглыбокае).

**ПАВЕ́РХНЯ**, -і, *ж.* **1.** Вонкавы бок чаго-н. *П. металу. Слізгаць па паверхні чаго-н.* (таксама перан.: не паглыбляцца ў сутнасць чаго-н., абмяжоўвацца знешнім бокам з'яў). *Ляжаць на паверхні* (перан.: пра што-н. яснае, відавочнае). **2.** У матэматыцы: мяжа, якая аддзяляе геаметрыч-

нае цела ад знешняй прасторы або іншага цела.

**ПАВЕ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак.* **1.** *каму-чаму* і *ў каго-што.* Прыняць на веру што-н., стаць перакананым у кім-, чым-н. *П. у перамогу. Паверце, ён не памыляецца тут. Мы ў яго паверылі.* **2.** *каму-чаму.* Прыняць за праўду што-н., чые-н. словы. *П. чуткам.*

**ПАВЕ́СІЦЦА** *гл.* вешацца.

**ПАВЕ́СІЦЬ** *гл.* вешаць.

**ПАВЕ́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Пісьмовае афіцыйнае паведамленне з выклікам, запрашэннем куды-н. *П. ў міліцыю. П. на сход.* **2.** Кола пытанняў, якія павінны быць абмеркаваны на пасяджэнні. *П. схода.* ○ **Павестка дня** — тое, што і павестка (у 2 знач.).

**ПАВЕ́СЦІ**, -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзём, -ведзяце́, -вяду́ць; павёў, -вяла́, -ло́; -вядзі́; *зак.* **1.** *каго-што.* Пачаць весці (у 1—4 і 6 знач.). *П. дзіця за руку. П. батальён на прарыў. П. шашу на захад. П. трактар па полі. П. смыком па струнах. П. барацьбу з недахопамі.* **2.** *безас., каго куды.* Пахіліць, пацягнуць. *Галава закружылася і мяне павяло ўбок.* **3.** *чым.* Зрабіць плаўны рух, варухнуць. *П. плячамі. І вокам не павёў* (не звярнуў увагі, ніяк не зрэагаваў на слова, заўвагу і пад.). ‖ *незак.* **паво́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць (да 3 знач.).

**ПАВЕ́СЦІСЯ**, -вяду́ся, -вядзе́шся, -вядзе́цца; -вядзёмся, -ведзяце́ся, -вяду́цца; павёўся, -вяла́ся, -ло́ся; павядзі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Увайсці ў звычай, стаць прывычным. *Так павялося тут здаўна.* **2.** *з кім.* Пачаць вадзіцца з кім-н. (разм.). *З кім павядзешся, ад таго і набярэшся* (прыказка).

**ПАВЕСЯЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які зрабіўся больш вясёлым, весялейшым.

**ПАВЕСЯЛЕ́ЦЬ** *гл.* весялець.

**ПАВЕ́Т**, -а, *М* -ве́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Вялікім Княстве Літоўскім. Існавалі паветы ў Беларусі з 15 ст. да 1940 г. ‖ *прым.* **павято́вы**, -ая, -ае. *П. горад.*

**ПАВЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Тое, што і *павець. Калёсы стаяць пад паветкай.*

**ПАВЕ́ТРА**, -а, *н.* Сумесь газаў, якая складае атмасферу Зямлі. *Чыстае п. Бываць на паветры* (хадзіць на прагулку). *Дыхаць паветрам чаго-н.* (перан.: пранікнуцца ўражаннем ад чаго-н.). *На вольным паветры* (у садзе, за горадам, не ў закрытым памяшканні). *Вісець у паветры* (перан.: знаходзіцца ў няпэўным становішчы). *Узляцець у п.* (узарвацца). *Паветра!* (каманда ў знач.: трывога, паявіўся варожы самалёт). *Бой у паветры.* ‖ *прым.* **паве́траны**, -ая, -ае. *Паветраныя войны. П. мост* (авіяцыйная лінія з перавалачнымі аэрадромамі і навігацыйным абсталяваннем).

**ПАВЕ́ТРАНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* паветра. **2.** Які адносіцца да паветраплавання і авіяцыі. *П. флот. Паветраныя зносіны.* **3.** Які прыводзіцца ў рух паветрам. *Паветраная помпа.*

**ПАВЕТРАПЛА́ВАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца паветраплаваннем. ‖ *ж.* **паветрапла́вальніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАВЕТРАПЛА́ВАННЕ**, -я, *н.* Тэорыя і практыка руху ў паветры на апаратах, лягчэйшых за паветра. ‖ *прым.* **паветрапла́вальны**, -ая, -ае.

**ПАВЕ́Ў**, -ве́ву, *мн.* -ве́вы, -ве́ваў, *м.* **1.** Слабы парыў ветру; рух у паветры. *П. свежага ветру.* **2.** *перан.* Прыметы чаго-н., што надыходзіць, або той ці іншы напрамак у густах, настроях і жыцці грамадства (кніжн.). *Гуманістычныя павевы.*

**ПАВЕ́ЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Пляцоўка пад дахам на слупах для хавання чаго-н. ад дажджу, непагоды. *Згрузіць мяхі пад п.* **2.** Памяшканне, дзе звычайна складаюць дровы.

**ПАВЕ́ШАННЕ** *гл.* вешаць.

**ПАВЕ́ШАЦЬ** *гл.* вешаць.

**ПАВЕ́ЯЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ée; Пачаць веяць (у 2 знач.), дзьмуць. *Павеяў вецер. Павеяла* (безас.) *вясной. Ад яе ўсмешкі павеяла* (безас.) *цеплынёй і ласкай* (перан.).

**ПАВІ́ДЛА**, -а, *н.* Салодкая маса з працёртых пладоў, звараных з цукрам. *Яблычнае п.*

**ПАВІДНЕ́ЦЬ** *гл.* віднець.

**ПАВІЛЬГАТНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які зрабіўся вільготным. *Павільгатнелыя вочы.*

**ПАВІЛЬГАТНЕ́ЦЬ** *гл.* вільгатнець.

**ПАВІЛЬЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Альтанка ці невялікі лёгкі будынак (напр., у садах, парках). *Кветкавы п.* **2.** Будынак, памяшканне для экспанатаў на выстаўцы, для правядзення кіна- і фотаздымак. *Выставачны п.* ‖ *прым.* **павільённы**, -ая, -ае.

**ПАВІНАВА́ЦІЦЦА** *гл.* вінавацiцца.

**ПАВІ́НЕН**, -нна, *у знач. вык.* **1.** *каму.* Абавязаны аддаць доўг. *Сусед мне п. пяцьдзясят рублёў.* **2.** *з інф.* Абавязаны зрабіць што-н. *Мы павінны змагацца за мір.* **3.** *з інф.* Пра тое, што адбудзецца абавязкова, непазбежна або мяркуецца адбыцца. *Ён п. хутка з'явіцца.*

**ПАВІНІ́ЦЦА**, -нюся, -нíшся, -ніцца; -нíмся, -ніце́ся, -ня́цца; *зак.* Прызнацца ў сваёй віне, пакаяцца.

**ПАВІ́ННАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Грамадскі або дзяржаўны абавязак насельніцтва. *Воінская п.*

**ПАВІНШАВА́ЦЬ** *гл.* віншаваць.

**ПАВІ́НЫ** *гл.* пава.

**ПАВІСЕ́ЦЬ**, -ішу́, -ісíш, -ісíць; -ісíм, -ісіце́, -ся́ць; -ісí; *зак.* Вісець некаторы час.

**ПАВІ́СЛЫ**, -ая, -ае. Які павіс, абвіс. *Павіслыя струкі фасолі.*

**ПАВІ́СНУЦЬ** *гл.* віснуць.

**ПАВІТА́ЦЦА** *гл.* вітацца.

**ПАВІТА́ЦЬ** *гл.* вітаць.

**ПАВІТУ́ХА**[1], -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х, *ж.* (уст.). Жанчына, якая дапамагае пры родах.

**ПАВІТУ́ХА**[2], -і, *ДМ* -ту́се, *ж.* Пустазелле сямейства павітухавых, сцябло якога абвіваецца вакол іншых раслін і высмоктвае з іх сокі. ‖ *прым.* **павіту́хавы**, -ая, -ае.

**ПАВІЯ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Малпа з падоўжанай мордай і ярка афарбаванымі сядалішчнымі мазалямі. ‖ *прым.* **павія́навы**, -ая, -ае.

**ПАВО́ДДАЛЬ**, *прысл.* На некаторай адлегласці ад чаго-н. *Адышоўся і стаў п.*

**ПАВО́ДЗІНЫ**, -дзін. Спосаб жыцця і дзеянняў. *Культурныя п. П. вучняў. Чалавек прыкладных паводзін. Вывучаць п. жывёл.* ‖ *прым.* **паво́дзінскі**, -ая, -ае (спец.). *П. этыкет.*

**ПАВО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* ◊ **Паводзіць сябе** — прытрымлівацца якіх-н. паводзін, трымаць сябе якім-н. чынам. *Сціпла п. сябе. Ён паводзіў сябе па-джэнтльменску.*

**ПАВО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Часовае падняцце вады ў вадаёмах у выніку раставання снегу або вялікіх дажджоў. ‖ *прым.* **паво́дкавы**, -ая, -ае.

**ПАВО́ДЛЕ**, *прыназ. з Р.* У адпаведнасці з чым-н., згодна з якімі-н. прыметамі. *П. паведамленняў прэсы. П. апошняй пастановы.*

**ПАВО́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* Просты колавы экіпаж без рысораў. ‖ *прым.* **паво́зачны**, -ая, -ае.

**ПАВО́Й**, -во́ю, *м.* Травяністае павойнае пустазелле сямейства бярозкавых з белавата-ружовымі кветкамі.

**ПАВО́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які пры росце чапляецца за што-н., абвіваецца вакол чаго-н. *Павойныя расліны.*

**ПАВО́ЛІ**, *прысл.* **1.** Няспешна, марудна. *Ісці п. Рабіць п.* **2.** Асцярожна. *П. ступаць.* **3.** Паступова, не адразу. *Гул п. сціхаў.*

**ПАВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Няспешны, марудны. *Павольныя рухі. Павольна* (прысл.) *пісаць.* ‖ *наз.* **паво́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАВУЗЕ́ЦЬ** *гл.* вузець.

**ПАВУ́ЗІЦЬ**, -ву́жу, -ву́зіш, -ву́зіць; -ву́жаны; *зак., што.* Зрабіць вузейшым. *П. сукенку.*

**ПАВУ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Драпежная членістаногая жывёліна, якая пляце павуціну. ‖ *памянш.* **павучо́к**, -чка́, *мн.* -чкí, -чко́ў, *м.* ‖ *прым.* **павучы́ны**, -ая, -ае *і* **павуко́вы**, -ая, -ае.

**ПАВУЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* Сетка з тонкіх нітак, утвораная з клейкага рэчыва, якое выдзяляецца павуком. *Плесці павуціну. П. хлусні* (перан.). ‖ *памянш.* **павуці́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **павуці́нны**, -ая, -ае *і* **павуці́навы**, -ая, -ае.

**ПАВУЦІ́ННЕ**, -я, *н., зб.* Павуціна. *Зняць п. Аблытаць павуціннем хлусні* (перан.). ‖ *прым.* **павуці́ннeвы**, -ая, -ае. *П. клешч.*

**ПАВУЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які ўтрымлівае ў сабе што-н. карыснае, які служыць урокам, абагачае ведамі, вопытам. *П. ўрок гісторыі. Павучальныя вынікі. Павучальная гутарка.* ‖ *наз.* **павуча́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАВУЧА́ННЕ**, -я, *н.* Настаўленне, павучальная парада.

**ПАВУЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што* і *чаму.* Даваць павучанні каму-н., настаўляць. *П. маладых.*

**ПАВУЧО́К** *гл.* павук.

**ПАВУЧЫ́НЫ** *гл.* павук.

**ПАВЫБЕ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Пабяліць усё, многае мелам, вапнай і пад. *П. сцены.* **2.** Надаць святлейшы колер усяму, многаму спецыяльнай апрацоўкай. *П. палотны.*

**ПАВЫБІВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Выбіцца, прабіцца на паверхню — пра ўсё, многае. *Дзе-нідзе ўжо павыбівалася першая траўка.*

**ПАВЫБІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Рэзкім ударам прымусіць выпасці ўсё, многае. *П. вокны.* **2.** Ударамі ачысціць ад пылу ўсё, многае. *П. дываны.* **3.** Зрабіць вялікую колькасць паглыбленняў. *Вада павыбівала канаўкі.* **4.** Пракласці яздой, хадзьбой, пратаптаць многа чаго-н. *П. сцежкі ў жыце.*

**ПАВЫБІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Выбраць усё, многае або выбраць што-н. з усяго, многага. *П. зярняты. П. самыя лепшыя ягады.* **2.** *каго.* Выбраць галасаваннем усіх, многіх. *П. дэлегатаў.*

**ПАВЫБРЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Выбрыць усё, многае.

**ПАВЫБЯГА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Выбегчы адкуль-н. — пра ўсіх, многіх. *Дзеці павыбягалі з хаты.*

**ПАВЫВА́ЛЬВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Вываліцца, выпасці адкуль-н. — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Кнігі павывальваліся з партфеля.*

**ПАВЫВА́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Вываліць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. седакоў з саней.*

**ПАВЫВАРО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Вывернуць усё, многае. *П. навалачкі. П. карчы. Ураган павыварочваў дрэвы.*

**ПАВЫВЕ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* Вывесіць усё, многае. *П. сцягі.*

**ПАВЫВО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што.* Вывесці ўсіх, многіх або ўсё, многае. *П. коней. П. плямы. П. птушанят. П. клапоў і прусакоў. П. са складу прэзідыума.*

**ПАВЫВО́ЗІЦЬ**, -во́жу, -во́зіш, -во́зіць; *зак., каго-што.* Вывезці адкуль-н. або куды-н. усіх, многіх або ўсё, многае. *П. гной з хлявоў. П. дзяцей у лагеры. П. бярвенне з лесу.*

**ПАВЫВУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Вывучыць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. вершы. Павывучваў сыноў на аграномаў.*

**ПАВЫГАНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Выгнаць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. кароў на пашу. П. з хаты.*

**ПАВЫГО́РТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выгарнуць усё, многае. *П. вуголле з печы.*

**ПАВЫГРАБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Выграбці ўсё, многае. *П. попел з топак.*

**ПАВЫГРУЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Выгрузіць усё, многае. *П. багаж з вагонаў.*

**ПАВЫДАВА́ЦЬ**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць; *зак., каго-што.* Выдаць усіх, многіх ці ўсё, многае. *П. атэстаты. П. дачок замуж. П. саўдзельнікаў.*

**ПАВЫДАТКО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Выдаткаваць усё, многае.

**ПАВЫДЗЕ́ЎБВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выдзеўбці ўсё, многае. *П. дзіркі.*

**ПАВЫДЗІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Выдраць, вырваць усё, многае. *П. цвікі са сцен.*

**ПАВЫДУ́МВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што* (разм.). Тое, што і *павыдумляць.*

**ПАВЫДУ́МЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што* (разм.). Тое, што і *павыдумляць.*

**ПАВЫДУМЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., што* (разм.). **1.** Вынайсці, прыдумаць вялікую колькасць чаго-н. *П. разнастайныя прыборы.* **2.** і *без дап.* Нахлусіць многае пра каго-, што-н. *Павыдумлялі розныя небыліцы.*

**ПАВЫЖЫНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Зжынаючы, выжаць усё або частку чаго-н. *П. праходы для жняяркі.*

**ПАВЫЗУ́БЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Вызубіць усё, многае. *П. сякеры.*

**ПАВЫКАЛУ́ПВАЦЬ** *і* **ПАВЫКАЛУ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Калупаючы, выняць адкуль-н. усё, многае. *П. зярняты з колаcа.*

**ПАВЫКАРЧО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выкарчаваць усё, многае. *П. пні. П. бюракратаў з устаноў* (перан.).

**ПАВЫКІДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАВЫКІ́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Выкінуць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. непатрэбныя цытаты з тэксту.*

**ПАВЫКЛА́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выкласці, вылажыць усё, многае. *П. пакункі з сумкі. П. сцены керамічнай пліткай.*

**ПАВЫКЛЮЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Выключыць усіх, многіх ці ўсё, многае. *П. са спісаў. П. святло ва ўсіх пакоях.*

**ПАВЫКО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выкапаць усё, многае. *П. ямы. П. бульбу.*

**ПАВЫКО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выкасіць усё або што-н. у многіх месцах, усюды. *П. пустазелле.*

**ПАВЫКРУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выкруціць усё, многае або што-н. у многіх месцах. *П. шрубы. П. бялізну. П. дзіркі.*

**ПАВЫКРЭ́СЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Выкрасліць у многіх месцах, усё або ўсіх, многіх. *П. са спісаў тых, хто не ўдзельнічаў.*

**ПАВЫЛА́ЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -зіць; -зім, -зіце, -зяць; *зак.* Вылезці — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае. *Бярозкі і хвойкі павылазілі з зямлі. Валасы павылазілі з-пад шапкі.*

**ПАВЫЛІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Выліць усё, многае ці што-н. з многіх пасудзін. *П. ваду з вёдраў.*

**ПАВЫЛІ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Вылічыць усё, многае. *П. працэнты. П. запазычанасць.*

**ПАВЫЛО́МЛІВАЦЬ** *і* **ПАВЫЛО́МВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выламаць што-н. у многіх месцах або ўсё, многае. *П. дзверы.*

**ПАВЫЛО́ЎЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Вылавіць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. рыбу. П. бярвенне з ракі.*

**ПАВЫЛУ́ШЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Вылушчыць усё, многае. *П. фасоль са стручкоў.*

**ПАВЫЛЯТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Вылецець — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Птушкі павыляталі са сваіх гнёздаў. Ад выбуху павыляталі шыбы.*

**ПАВЫМА́ЗВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Вымазацца, запэцкацца — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Дзеці павымазваліся глінай.*

**ПАВЫМАЛО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Вымалаціць усё, многае. *П. зерне са снапоў.*

**ПАВЫМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Выняць адно за другім усё, многае. *П. рэчы з чамадана.*

**ПАВЫМІРА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак., што.* Вымерці — пра ўсіх, многіх. *Паўзуны буйных памераў даўно павыміралі.*

**ПАВЫМО́ШЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Вымасціць, замасціць усё, многае. *П. вуліцы.*

**ПАВЫМЫВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Вымыцца — пра ўсіх, многіх. *Падарожнікі павымываліся.*

**ПАВЫМЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Вымыць усіх, многіх, усё, многае або ў многіх месцах. *П. дзяцей. П. вокны. Вада павымывала раўчукі.*

**ПАВЫМЯРЗА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Вымерзнуць — пра ўсё, многае. *Сады павымярзалі.*

**ПАВЫМЯТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Вымесці, падмесці ўсё, многае. *П. пакоі. П. смецце.*

**ПАВЫНІШЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Вынішчыць, знішчыць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. пустазелле. П. тараканаў.*

**ПАВЫНО́СІЦЬ**, -но́шу, -но́сіш, -но́сіць; *зак., каго-што.* Несучы, выдаліць, выставіць адкуль-н. усё, многае або ўсіх, многіх. *П. мэблю з хаты.*

**ПАВЫПАДА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Выпасці адкуль-н. — пра ўсё, многае або ўсіх, многіх. *Шыбы павыпадалі ад выбухаў. Птушаняты павыпадалі з гнязда.*

**ПАВЫПАЎЗА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Выпаўзці — пра ўсіх, многіх. *Вужакі павыпаўзалі на сонца.*

**ПАВЫПІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Выпіць усё, многае. *П. прахаладжальныя напіткі.*

**ПАВЫПІ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Выпісаць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. цытаты. П. раненых са шпіталя.*

**ПАВЫПІХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАВЫПІ́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Выпіхнуць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. усіх з пакоя.*

**ПАВЫПЛА́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выплаціць усё, многае. *П. пенсіі. П. надбаўку.*

**ПАВЫПЛЯТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Выплесці ўсё, многае. *П. стужкі з кос.*

**ПАВЫПО́ЛВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выпалаць усё, многае. *П. пустазелле. П. грады.*

**ПАВЫПРАСО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выпрасаваць, адпрасаваць усё, многае. *П. кашулі.*

**ПАВЫПРАЎЛЯ́ЦЬ**[1], -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Выправіць усё, многае. *П. памылкі ў дыктанце.*

**ПАВЫПРАЎЛЯ́ЦЬ**[2], -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Выправіць, адправіць куды-н. усіх, многіх або ўсё, многае. *П. дзяцей у школу. П. камбайны ў поле.*

**ПАВЫПУСКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Выпусціць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. птушак на волю. П. кнігі.*

**ПАВЫПЫ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выпыліць усё, многае. *П. коўдры.*

**ПАВЫПЫ́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выпытаць усё, многае. *П. сакрэты.*

**ПАВЫРАБЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Вырабіць усё, многае. *П. усе скуры. П. вугальныя разрэзы. П. у гразь адзенне.*

**ПАВЫРАЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Выразаць усё, многае. *П. старыя дрэвы. П. патрэбныя артыкулы з газет.*

**ПАВЫРАСТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* **1.** Стаць высокімі, дарослымі (пра людзей). **2.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Узнікнуць — пра ўсё, многае. *Навакол павыраслі новыя дамы.* **3.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Паўстаць перад вачамі — пра многіх, многае. *Як з зямлі павыраслі салдаты.*

**ПАВЫРЫВА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Вырваць адкуль-н. усё, многае або ўсіх, многіх. *П. зубы. П. буракі.*

**ПАВЫРЫВА́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; -а́ны; *зак., што.* Вырыць многа чаго-н. або ў многіх месцах. *Свінні павырывалі ямы на дварэ.*

**ПАВЫСА́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што.* Высадзіць, ссадзіць адкуль-н. усіх, многіх. *П. пасажыраў.* **2.** *што.* Перасаджваючы, пасадзіць у многіх месцах, перасадзіць усё, многае. *П. дрэвы. П. усю расаду.*

**ПАВЫСВІДРО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Высвідраваць у многіх месцах або многа чаго-н. *П. дзіркі.*

**ПАВЫ́СІЦЦА**, -ы́шуся, -ы́сішся, -ы́сіцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць больш высокім. *Узровень вады павысіўся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Узмацніцца, палепшыцца, удасканаліцца. *Цікавасць да кніг павысілася. Веды вучняў павысіліся.* **3.** Перайсці на больш высокую аплату працы. *Аклады па службе павысіліся.* ‖ *незак.* **павыша́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАВЫ́СІЦЬ**, -ы́шу, -ы́сіш, -ы́сіць; -ы́шаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць больш высокім (у 2, 3 і 6 знач.). *П. узровень вады. П. тэмпературу. П. прадукцыйнасць працы. П. цэны.* **2.** *што.* Узмацніць, палепшыць, удасканаліць. *П. якасць прадукцыі. П. культурны ўзровень.* **3.** *каго (што)* і *у чым, па чым.* Прызначыць на больш высокую пасаду. *П. па службе.* ◊ **Павысіць голас** — пачаць гаварыць гучней, з раздражненнем. ‖ *незак.* **павыша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **павышэ́нне**, -я, *н.*

**ПАВЫСКА́КВАЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ае; -аем, -аеце, -аюць; *зак.* **1.** Выскачыць — пра ўсіх, многіх. *Людзі павыскаквалі з хат.* **2.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*), *перан.* Нечакана выпасці адкуль-н. — пра ўсё, многае (разм.). *Коркі павыскаквалі з бутэлек.*

**ПАВЫСКРАБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАВЫСКРЭ́БВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выскрабці ўсё, многае або ў многіх месцах. *П. кашу з гаршкоў. П. плямы ванны на падлозе.*

**ПАВЫСКУБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАВЫСКУ́БВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выскубці адно за адным усё, многае. *П. пер'е.*

**ПАВЫСО́ЎВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Паказацца, высунуцца адкуль-н. — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *З-пад шынялёў павысоўваліся галовы.*

**ПАВЫСО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Высунуць, перамясціць на адкрытае месца ўсё, многае. *П. сталы на сярэдзіну хаты. Дзеці павысоўвалі галовы з-пад шафы.*

**ПАВЫСТАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** Выставіць што-н. устаўленае ў многіх месцах, усюды. *П. падвойныя рамы з вокнаў.* **2.** *што.* Падаўшы ўперад, высунуць, паставіць для агляду, карыстання і пад. усё, многае. *П. рукі. П. экспанаты.* **3.** *каго.* Выгнаць адкуль-н. усіх, многіх. *П. свавольнікаў за дзверы.*

**ПАВЫСТРЫГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Выстрыгчы што-н. у многіх месцах, усюды. *П. валасы.*

**ПАВЫСТУ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выстудзіць усё, многае. *П. пакоі.*

**ПАВЫСУ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Высушыць усё, многае. *П. бялізну.*

**ПАВЫСЫЛА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Выслаць адно за другім усё, многае або ўсіх, многіх. *П. пасылкі. П. дазоры наперад.*

**ПАВЫСЫПА́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв.; -а́ецца; *зак.* Высыпацца адкуль-н. — пра ўсё, многае. *Павысыпалася зерне з каласоў.*

**ПАВЫСЫПА́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Выспацца — пра ўсіх, многіх. *Дзеці ўжо павысыпаліся, гамоняць.*

**ПАВЫСЫПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Высыпаць усё, многае. *П. двары пяском. П. пясок з чаравікаў.* **2.** *(1 і 2 ас. не ўжыв.).* Выйсці, выбегчы ў мностве (разм.). *З вагонаў павысыпалі пасажыры.*

**ПАВЫСЫХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Высахнуць — пра ўсё, многае. *Сажалкі павысыхалі.*

**ПАВЫСЯКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Высечы ўсё або вялікую колькасць чаго-н. *П. лясы. П. надпісы на скалах.*

**ПАВЫСЯЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Выселіць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. злачынцаў са сталіцы.*

**ПАВЫТО́ПТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Вытаптаць усё, многае або ў многіх месцах. *П. усю траву. П. сцежкі.*

**ПАВЫТРАСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Вытрасці ўсё, многае. *П. дарожкі. П. рэчы з сумкі.*

**ПАВЫХО́ДЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -дзіць; -дзім, -дзіце, -дзяць; *зак.* **1.** Выйсці адкуль-н., пакінуць межы чаго-н. — пра ўсіх, многіх. *Людзі павыходзілі з хат. П. з акружэння.* **2.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Быць выдадзеным, надрукаваным — пра ўсё, многае. **3.** Выйсці замуж — пра ўсіх, многіх.

**ПАВЫЦІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Выцерці ўсіх, многіх або ўсё, многае. *П. спацелыя твары.* **2.** *што.* Вышмуляць што-н. у многіх месцах. *П. локці.*

**ПАВЫЦЯ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што.* Выцягнуць адкуль-н. усё, многае або ўсіх, многіх. *Гусі павыцягвалі шыі.* **2.** *перан., каго.* Дапамагчы выйсці з цяжкага становішча ўсім, многім (разм.).

*П. людзей з бяды.* **4.** *што.* Выкрасці ўсё, многае (разм.). *П. грошы з кішэняў.*

**ПАВЫЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выцерабіць што-н. у многіх месцах або ўсё, многае. *П. кусты пад сенажаці.*

**ПАВЫЧЫШЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Вычысціць усё, многае. *П. касцюмы.*

**ПАВЫ́ШАНЫ**, -ая, -ае. Больш высокі, вышэйшы за нармальны; павялічаны, палепшаны. *Павышаная тэмпература. Гаварыць павышаным тонам. Павышаныя абавязацельствы.*

**ПАВЫША́ЦЦА** *гл.* павысіцца.

**ПАВЫША́ЦЬ** *гл.* павысіць.

**ПАВЫШЭ́ННЕ** *гл.* павысіць.

**ПАВЫШЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* Зрабіцца вышэйшым. *Хлопчык за лета значна павышэў.*

**ПАВЫЯДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Высеці што-н. у многіх месцах або ўсё, многае. *П. начынку з пірагоў.*

**ПАВЫЯЗДЖА́ЦЬ**, адз. л. не ўжыв.; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Выехаць адкуль-н. — пра ўсіх, многіх. *Іх родзічы павыязджалі адгэтуль.*

**ПАВЯЗА́ЦЬ**, -яжу́, -я́жаш, -я́жа; -яжы́; -я́заны; *зак.* **1.** *што.* Склаўшы разам, звязаць усё, многае. *П. адзенне ў клункі.* **2.** *каго.* Звязаць рукі і ногі ўсім, многім. *П. бандытаў.* **3.** *што.* Надзеўшы на што-н., завязаць. *П. галаву хусткай.* **4.** *што* і *без дап.* Вязаць што-н. некаторы час. *За дзень павязалі ўсе снапы.* ‖ *незак.* **павя́зваць**, -аю, -аеш, -ае (да 3 знач.).

**ПАВЯ́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* **1.** Кавалак тканіны, які носяць на рукаве і пад. *Жалобная п.* **2.** Бінт ці іншы матэрыял, якім закрыта, завязана параненае месца або які дапамагае ўтрымліваць частку цела ў патрэбным становішчы. *Налажыць павязку на рану. Гіпсавая п.* ‖ *прым.* **павя́зачны**, -ая, -ае.

**ПАВЯЛІ́ЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* Стаць большым (па аб'ёме, колькасці і пад.). *Павялічыўся выпуск прадукцыі. Попыт павялічыўся.* ‖ *незак.* **павялі́чвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **павелічэ́нне**, -я, *н.*

**ПАВЯЛІ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* Зрабіць большым (па аб'ёме, колькасці і пад.). *П. выпуск прадукцыі. П. плошчу пасеваў.* ‖ *незак.* **павялі́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **павелічэ́нне**, -я, *н.*

**ПАВЯ́НУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; павя́ў, -вя́ла; *зак.* Звяць — пра ўсё, многае. *Кветкі павялі.*

**ПАВЯНЧА́ЦЦА** *гл.* вянчацца.

**ПАВЯНЧА́ЦЬ** *гл.* вянчаць.

**ПАВЯРНУ́ЦЦА**, -вярну́ся, -ве́рнешся, -ве́рнецца; -вярні́ся; *зак.* **1.** Вярчальным рухам, варочаючыся, змяніць напрамак, становішча. *П. кругом. П. на другі бок.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Атрымаць нечаканае развіццё. *Справа павярнулася не так, як чакалі.* ‖ *незак.* **паваро́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **паваро́т**, -у, *М* -ро́це, *мн.* -ы, -аў, *м.*

**ПАВЯРНУ́ЦЬ**, -вярну́, -ве́рнеш, -ве́рне; -вярні́; -ве́рнуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Варочаючы, змяніць становішча каго-, чаго-н. *П. ключ. П. хворага на бок.* **2.** *каго-што* і *без дап.* Змяніць напрамак, шлях руху. *П. з вуліцы ў завулак. П. каня назад. Дарога павярнула ў лес.* **3.** *перан., што.* Даць чаму-н. іншы напрамак, развіццё. *П. гаворку на іншы лад. П. справу па-свойму.* ‖ *незак.* **паваро́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **паваро́т**, -у, *М* -ро́це, *мн.* -ы, -аў, *м.*

**ПАВЯРХО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які не дае глыбокага аналізу, не закранае сутнасць чаго-н., несур'ёзны. *Павярхоўнае знаёмства са справамі. Павярхоўна* (прысл.) *ведаць што-н.* ‖ *наз.* **павярхо́ўнасць**, -і, *ж.*

**ПАВЯТО́ВЫ** *гл.* павет.

**ПАВЯЧЭ́РАЦЬ** *гл.* вячэраць.

**ПАГАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -во́рыш, -во́рыць; *зак.* Правесці некаторы час за гаворкай, абмяркоўваючы што-н.; перагаварыць (у 1 знач.) аб чым-н. *П. са знаёмым. Хочацца з вамі п. аб важнай справе.*

**ПАГАВО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., аб кім-чым, пра каго-што* і *са злуч.* «што». Час ад часу ўзнаўляць размовы пра што-н., абмяркоўваючы што-н., перадаючы якія-н. чуткі. *Пагаворваюць аб яго ад'ездзе (пра яго ад'езд)* або *што ён ад'язджае.*

**ПА́ГАДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, па́гад, *ж.* Будыйскі або індуісцкі храм, сховішча рэлігійных рэліквій.

**ПАГАДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак., каго.* Выгадаваць усіх, многіх. *П. дзяцей.*

**ПАГАДА́ЦЬ** *гл.* гадаць.

**ПАГАДЗІ́ННЫ**, -ая, -ае. Які робіцца, разлічваецца па гадзінах. *Пагадзінная аплата. Пагадзінная праца.*

**ПАГАДЗІ́ЦЦА**, -гаджу́ся, -го́дзішся, -го́дзіцца; *зак.* **1.** *з кім-чым* і *без дап.* Выказаць згоду з кім-, чым-н. *П. з прапановай. — Так, нам тады было надта цяжка, — пагадзіўся са мной сусед.* **2.** *на чым* і *без дап.* Прыйсці да згоды, сысціся на чым-н. *Пагадзіліся ісці пехатой. Пагадзіліся на тым, што туды паеду я.* **3.** *з кім-чым.* Памірыцца з кім-н. або прымірыцца з чым-н., прывыкнуць да чаго. *Паспрачаліся, а потым пагадзіліся. Ён ніяк не мог п. з тым, што несправядліва з ім абышліся.* ‖ *незак.* **пагаджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАГАДЗІ́ЦЬ**, -гаджу́, -го́дзіш, -го́дзіць; *зак.* **1.** *што.* Прывесці ў адпаведнасць з чым-н. *П. супярэчнасці.* **2.** *каго.* Памірыць, прымірыць. *П. спрачальнікаў.* ‖ *незак.* **пагаджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 знач.).

**ПАГАДНЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Дагавор, які абумоўлівае абавязацельствы ў чым-н. *Гандлёвае п. Падпісаць п.* **2.** Прымірэнне, згода. *Шукаць пагаднення.*

**ПАГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. Які робіцца па гадах. *Пагадовыя запісы ў летапісе.*

**ПАГАЙДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **ПАГО́ЙДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Гайдацца некаторы час. *П. ў гамаку.*

**ПАГАЙДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ПАГО́ЙДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што* і *чым.* Гайдаць (гойдаць) некаторы час. *П. калыску.*

**ПАГАЛІ́ЦЦА** *гл.* галіць.

**ПАГАЛІ́ЦЬ** *гл.* галіць.

**ПАГАЛО́СКА**, -і, *ДМ* -ло́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Чуткі, размовы, якія перадаюцца. *Пусціць пагалоску.*

**ПАГАЛО́ЎЕ**, -я, *н.* Агульная колькасць галоў жывёлы. *П. кароў. Рост пагалоўя.*

**ПАГАЛО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які распаўсюджваецца на ўсіх. *П. перапіс.*

**ПАГА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (разм.). Нядобры чалавек, нягоднік. ‖ *ж.* **пага́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ПАГА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., каго-што* (разм.). **1.** Пэцкаць, рабіць брудным. *П. хату. П. рукі.* **2.** Ганьбіць. *Здраднікі паганяць зямлю.* ‖ *зак.* **апага́ніць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены (да 2 знач.).

**ПАГА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* паганец. **2.** Неядомы, паганы (у 1 знач.) грыб.

**ПАГА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які нельга есці з прычыны ядавітасці, нечыстаты. *П. грыб.* **2.** Прызначаны для смецця, нечыстот. *Паганае вядро.* **3.** Мярзотны, подлы чалавек. *П. чалавек. П. настрой.* **4.** Злы, куслівы (пра сабаку). **5.** Язычніцкі (уст.). *Паганыя ідалы.* ◊ **Паганыя вочы** (разм.) — шкодныя вочы.

**ПАГАНЯ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). Тое, чым паганяюць. *Не кіем дык палкай — адной паганялкай* (з нар.).

**ПАГАНЯ́ТЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* **1.** Той, хто паганяе запрэжаных жывёл, возчык. **2.** Той, хто падганяе на працы, наглядчык. *Паганятыя з бізунамі стаялі ў кожнага над каркам.*

**ПАГАНЯ́ЦЬ**[1], -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., каго.* Панукваць, падсцёбваць. *П. каня пугай.*

**ПАГАНЯ́ЦЬ**[2], -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* На працягу якога-н. часу прымусіць бегчы, лятаць (разм.). *П. галубоў. Пойдзем, паганяем мяч.* **2.** *што.* Акучваць некаторы час (разм.). *За гадзіну паганяў бульбу.*

**ПАГАРАЧЫ́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца; *зак.* **1.** Праявіць гарачнасць, раздражнёнасць. *Дарэмна я пагарачыўся.* **2.** Праявіць паспешнасць. *Пагарачылася, паехала туды, а потым шкадавала.*

**ПАГА́РДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Ганарыстасць, адсутнасць павагі да каго-, чаго-н. *Ён амаль да кожнага ставіцца з пагардай.*

**ПАГАРДЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *пагардлівы.* ‖ *наз.* **пагарджа́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАГАРДЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., кім-чым.* Адносіцца да каго-, чаго-н. з пагардай, халатнасцю, не захоўваць. *П. тэхнікай бяспекі.* ‖ *наз.* **пагарджа́нне**, -я, *н.*

**ПАГА́РДЛІВЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да каго-, чаго-н. з пагардай або выражае, утрымлівае ў сабе пагарду да каго-, чаго-н. *Пагардлівыя адносіны. Пагардлівыя словы.* || *наз.* **пага́рдлівасць**, -і, *ж.*

**ПАГАРША́ЦЦА** *гл.* пагоршыцца.

**ПАГАРША́ЦЬ** *гл.* пагоршыць.

**ПАГАРШЭ́ННЕ** *гл.* пагоршаць, пагоршыцца, пагоршыць.

**ПАГАРЭ́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* Той, хто пагарэў (у 1 знач.). *Дапамагчы пагарэльцам.* || *прым.* **пагарэ́льскі**, -ая, -ае.

**ПАГАРЭ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; -ры́; *зак.* **1.** Страціць дом, маёмасць у выніку пажару, а таксама згарэць — пра ўсё, многае. *Адбудаваліся тыя, хто пагарэў. Многія вёскі ў час вайны пагарэлі.* **2.** *перан., без дап.* і *на чым.* Пацярпець няўдачу (разм.). *П. на злоўжыванні службовым становішчам.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Гарэць некаторы час. *Свяча пагарэла і пагасла.*

**ПАГАСІ́ЦЬ** *гл.* гасіць.

**ПАГА́СЛЫ**, -ая, -ае. Які перастаў гарэць, пагас. *Пагаслая цыгарэта.*

**ПАГА́СНУЦЬ** *гл.* гаснуць.

**ПАГАТО́Ў**, *прысл.* Тым больш. *Калі ты гэтага не здолееш зрабіць, то ён і п. не зробіць.*

**ПАГАША́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што* (афіц.). Тое, што і *гасіць* (у 4 знач.). *П. аблігацыю. П. запазычанасць.* || *наз.* **пагашэ́нне**, -я, *н.* *Аплата ў лік пагашэння доўгу.*

**ПАГІ́БЕЛЬ**[1], -і, *ж.* Смерць, гібель. *Асудзіць на п.*

**ПАГІ́БЕЛЬ**[2], -і, *ж.* У выразах: **у тры пагібелі гнуцца (сагнуцца)** (разм.) — 1) вельмі нізка згінацца (сагнуцца); 2) *перан.* празмерна ўгодніцаць перад кім-н.; **гнуць у тры пагібелі** *каго (што)* — вельмі жорстка ўціскаць, прыгнятаць.

**ПАГІ́БЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *гібельны. П. ўраган.*

**ПАГІНА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Нумарацыя старонак кнігі, рукапісу.

**ПАГІ́НУЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -гі́не; -гі́нем, -гі́неце, -гі́нуць; *зак.* Загінуць — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *За зіму многа парасят пагінула.*

**ПАГЛА́ДЗІЦЬ** *гл.* гладзіць.

**ПАГЛЫБЕ́ЦЬ** *гл.* глыбець.

**ПАГЛЫ́БІЦЦА**, -блюся, -бішся, -біцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Зрабіцца больш глыбокім (у 1 і 4 знач.). *Каляіны паглыбіліся. Супярэчнасці паглыбіліся.* **2.** *у што.* Прасунуцца, прабрацца ўглыб чаго-н. *П. ў цясніну.* **3.** *перан., у што.* Засяродзіцца на чым-н., у думках увайсці ў што-н. *П. ў вывучэнне літаратуры. П. ў думкі.* || *незак.* **паглыбля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. || *наз.* **паглыбле́нне**, -я, *н.*

**ПАГЛЫ́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., што.* **1.** Зрабіць больш глыбокім (у 1 і 4 знач.). *П. сажалку. П. свае веды* (перан.). **2.** Змясціць глыбей, урэзаць што-н. *П. разец у метал.* || *незак.* **паглыбля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **паглыбле́нне**, -я, *н.*

**ПАГЛЫ́БЛЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Грунтоўны, сур'ёзны. *П. псіхалагічны аналіз.* **2.** Засяроджаны на чым-н., заняты чым-н. *П. ў свае думкі* || *наз.* **паглы́бленасць**, -і, *ж.*

**ПАГЛЫНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Увабраць у сябе. *Зямля паглынула ўсю дажджавую ваду. Горад паглынуў прыгарадныя вёскі* (перан.). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., каго (што).* Цалкам захапіць чым-н. *Новая ідэя паглынула вучонага.* **3.** *перан., што* і *чаго.* Патраціць на сябе многа часу, затрат, намаганняў. *Работа паглынула шмат часу. Паездка паглынула многа грошай.* || *незак.* **паглына́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **паглына́нне**, -я, *н.*

**ПАГЛЯДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Глядзець (у 1 і 2 знач.) час ад часу. *П. на гадзіннік. Пагпядай за дзецьмі.*

**ПАГЛЯ́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *пагпядаць.*

**ПАГЛЯДЗЕ́ЦЦА** *гл.* глядзецца.

**ПАГЛЯДЗЕ́ЦЬ** *гл.* глядзець.

**ПАГНА́ЦЦА**, -ганюся, -го́нішся, -го́ніцца; -гані́ся *зак., за кім-чым.* Кінуцца наўздагон, каб дагнаць. *П. за злодзеем. П. за славай* (асудж.).

**ПАГНА́ЦЬ**, -ганю́, -го́ніш, -го́ніць; -гані́; -гна́ны; *зак., каго-што.* Прымусіць рухацца ў якім-н. напрамку (у 1—3, 5 і 7 знач.). *П. кароў у поле. П. ворага са сваёй зямлі. Сабака пагнаў зайца. І чаго яго пагнала* (безас.) *у свет?* (чаго ён адправіўся ў свет; разм.).

**ПАГНІ́СЦІ** *і* **ПАГНІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніе́; пагніў, -ніла́, -ло́; *зак.* Згнісці — пра ўсё, многае. *За многія гады салома пагніла на стрэхах.*

**ПАГНУ́ЦЦА** *гл.* гнуцца.

**ПАГНУ́ЦЬ** *гл.* гнуць.

**ПАГО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Стан атмасферы ў дадзеным месцы, у дадзены час; добрае надвор'е. *Марозная п. Хто дажджом косіць, той пагодай сушыць* (з нар.). *Рабіць пагоду* (перан.: мець рашаючае значэнне ў якой-н. справе). *Чакаць з мора пагоды* (перан.: знаходзіцца ў чаканні чаго-н. няпэўнага). || *памянш.* **паго́дка**, -і, *ж.* (разм.). || *прым.* **паго́дны**, -ая, -ае (спец.). *Пагодныя ўмовы.*

**ПАГО́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Добры, ясны, цёплы ў адносінах да пагоды. *Стаяў п. дзень.*

**ПАГО́ЙДАЦЦА** *гл.* пагайдацца.

**ПАГО́ЙДАЦЬ** *гл.* пагайдаць.

**ПАГО́ЙДВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Гайдацца злёгку ці час ад часу. *Байдарка ціха пагойдвалася на хвалях.* || *наз.* **паго́йдванне**, -я, *н.*

**ПАГО́ЙДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што* або *чым.* Гайдаць злёгку або час ад часу. *Вада пагойдвае лодку.* || *наз.* **паго́йдванне**, -я, *н.*

**ПАГО́Н**[1], -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дарога, па якой гоняць жывёлу на папас. || *прым.* **паго́нны**, -ая, -ае.

**ПАГО́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Наплечны знак адрознення ў ваенным і іншым форменным адзенні. *Палкоўніцкі п. Палявыя пагоны* (засцерагальнага колеру). || *прым.* **паго́нны**, -ая, -ае.

**ПАГО́ННЫ**[1], -ая, -ае. Які вымяраецца ў даўжыню ў лінейных метрах. *П. метр.*

**ПАГО́ННЫ**[2] *гл.* пагон[1—2].

**ПАГО́НЯ**, -і, *ж.* **1.** *за кім-чым.* Праследаванне каго-, чаго-н. з мэтай дагнаць, злавіць. *Кінуцца ў пагоню за кім-н.* **2.** Чалавек ці звычайна група людзей, якія праследуюць каго-н. *П. бегла па слядах.* **3.** *перан., за кім-чым.* Імкненне дабіцца каго-, чаго-н., дасягнуць чаго-н. *П. за прыбыткам.* У выразе: **у пагоні** *за кім-чым, у знач. прыназ. з Т* — імкнучыся да каго-, чаго-н. *У пагоні за славай.*

**ПАГО́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* Невялікая адложыстая ўзвышанасць, узгорак. *Хата стаіць на пагорку.* || *прым.* **паго́рачак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.*

**ПАГО́РШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Тое, што і *пагоршыцца. Было ліха ды пагоршала* (прымаўка). *Хвораму пагоршала* (безас.). || *наз.* **пагаршэ́нне**, -я, *н. і* **паго́ршанне**, -я, *н.*

**ПАГО́РШЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шыцца; *зак.* Зрабіцца горшым. *Дысцыпліна пагоршылася. Здароўе пагоршылася.* || *незак.* **пагарша́цца**, -аецца *і* **паго́ршвацца**, -аецца; *наз.* **пагаршэ́нне**, -я, *н.*, **паго́ршанне**, -я, *н. і* **паго́ршванне**, -я, *н.*

**ПАГО́РШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., што.* Зрабіць горшым. || *незак.* **пагарша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **паго́ршваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **паго́ршванне**, -я, *н.* || *наз.* **пагаршэ́нне**, -я, *н. і* **паго́ршанне**, -я, *н.* (разм.).

**ПАГО́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты пагоркамі, няроўны. *Пагорыстая мясцовасць.* || *наз.* **паго́рыстасць**, -і, *ж.*

**ПАГРАЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўтрымлівае ў сабе пагрозу, выражае пагрозу. *У голасе гучалі пагражальныя ноткі.* **2.** Які пагражае небяспекай. *П. характар падзей.* || *наз.* **пагража́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАГРАЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *каму* і *без дап.* Рабіць пагражальны жэст рукой. *П. кулаком.* **2.** *каму* і *чым.* Папярэджваць з пагрозай пра што-н. *П. вайной.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *чым.* Служыць прыметай (чаго-н. небяспечнага, непрыемнага). *Рака пагражае разлівам.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каму-чаму.* Пра што-н. дрэннае, што з'яўляецца пагрозай каму-, чаму-н. *Пагражае гангрэна.* || *зак.* **пагразі́ць**, -ражу́, -ро́зіш, -ро́зіць (да 1 знач.).

**ПАГРАН...** Першая частка складаных слоў са знач. пагранічны, напр.: *пагранатрад, погранзастава, пагранслужба.*

**ПАГРАНІ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ваеннаслужачы пагранічнай аховы.

**ПАГРАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца або адбываецца каля граніцы. *Пагранічная зона. П. інцыдэнт.* **2.** Які мае адносіны да аховы граніцы. *П. гарнізон.*

**ПАГРАНІ́ЧЧА**, -а, *н.* Прыгранічная паласа, зона.

**ПАГРАШЫ́ЦЬ** *гл.* грашыць.

**ПАГРО́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -ро́з, *ж.* **1.** Запалохванне, абяцанне зрабіць непрыемнасць, зло. *Не звяртаць увагі на пагрозы.* **2.** Магчымая небяспека. *П. смерці. План быў пад пагрозай зрыву.*

**ПАГРО́ЗЛІВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *пагражальны. П. выраз твару. Пагрозлівая цемра.* ‖ *наз.* **пагро́злівасць**, -і, *ж.*

**ПАГРО́М**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рэакцыйна-шавіністычнае выступленне супраць якой-н. нацыянальнай ці іншай групы насельніцтва, якое суправаджаецца грабяжом маёмасці і масавымі забойствамі. ‖ *прым.* **пагро́мны**, -ая, -ае.

**ПАГРО́МШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Арганізатар або ўдзельнік пагрому. *Фашысцкія пагромшчыкі.*

**ПАГРУБЕ́ЦЬ** *гл.* грубець.

**ПАГРУ́ЗАЧНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для пагрузкі, які мае адносіны да пагрузкі. *Пагрузачныя работы.*

**ПАГРУЗІ́ЦЦА** *гл.* грузіцца.

**ПАГРУЗІ́ЦЬ** *гл.* грузіць.

**ПАГРУ́ЗКА** *гл.* грузіць.

**ПАГРУЗНЕ́ЦЬ** *гл.* грузнець.

**ПАГРУ́ЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; пагру́з, -зла; -ні; *зак.* Завязнуць у чым-н. грузкім. *Машыны пагрузлі ў гразі.*

**ПАГРУ́ЗЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Самаходная машына для пагрузкі і разгрузкі матэрыялаў і перамяшчэння іх на невялікую адлегласць. *Аўтаматычны п.*

**ПАГРЫ́ЗЦІСЯ** *гл.* грызціся.

**ПАГРЭ́БАВАЦЬ** *гл.* грэбаваць.

**ПАГРЭ́БЦІ**, -грабу́, -грабе́ш, -грабе́; -грабём, -грабяце́, -грабу́ць; пагро́б, -рэ́бла; -рабі́; *зак., што.* **1.** Згрэбці ўсё, многае. **2.** і *без дап.* Грэбці некаторы час. *П. сена да абеду.*

**ПАГРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; -э́ты; *зак., каго-што.* Грэць некаторы час. *П. рукі каля печы.* ◊ **Пагрэць (нагрэць) рукі** — нажыцца за чый-н. кошт. ‖ *звар.* **пагрэ́цца**, -э́юся, -э́ешся, -э́ецца.

**ПАГУБІ́ЦЬ** *гл.* губіць.

**ПАГУБЛЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -я́ецца; -я́емся, -я́ецеся, -я́юцца; *зак.* Згубіцца — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Цацкі пагубляліся.*

**ПАГУБЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Згубіць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. кароў у лесе.*

**ПАГУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго (што).* Паклікаць. *Пагукалі дзяцей у хату.*

**ПАГУЛЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). **1.** Прагулка. *Пайсці на пагулянку ў лес.* **2.** Вечарынка, гулянка (з пачастункамі). *Наладзіць пагулянку.*

**ПАГУЛЯ́ЦЬ** *гл.* гуляць.

**ПАГУСЦЕ́ЦЬ** *гл.* гусцець.

**ПАГУ́ТАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак.* Правесці некаторы час у гутарцы. *Пасядзелі, пагутарылі.*

**ПАГУ́ШКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Гушкацца некаторы час. *П. на арэлях.*

**ПАГУ́ШКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што* (разм.). Правесці некаторы час, гушкаючы каго-, што-н. *П. хлопчыка на арэлях.*

**ПАГЭ́ТУЛЬ**, *прысл.* Да гэтага месца, дасюль.

**ПАД (ПАДА)**, *прыназ.* **I.** *з В* і *Т* **1.** Ніжэй чаго-н., з боку ніжэйшай часткі чаго-н. *Пакласці сякеру пад лаўку. Нырнуць пад ваду* (ніжэй за ўзровень вады, углыб). *Працаваць пад зямлёй* (ніжэй паверхні, напр., у шахце). *Пасадзіць пад замок* (заперці). *Пад гарой зялёны гай.* **2.** Каля, у непасрэднай блізкасці ад чаго-н., а таксама ў зоне дзеяння, размяшчэння чаго-н. *Жыць пад Віцебскам. Папаў пад халодны душ.* **3.** Указвае на тое становішча, стан, у які ставяць каго-, што-н. ці ў якім знаходзіцца хто-, што-н. *Працаваць пад кіраўніцтвам каго-н. Браць пад строгую ахову. Быць пад пагрозай. Знаходзіцца пад судом.* **4.** Для чаго-н. *Зруб пад новы дом. Поле пад аўсом.* **II.** *з В.* **1.** Падтрымліваючы знізу. *Узяць пад руку.* **2.** Пра час: блізка да чаго-н., перад чым-н. *Бралася* (безас.) *пад дзень* (пачынала світаць). *Гэта было пад свята. Пад старасць.* **3.** У выглядзе чаго-н., падобна на што-н. *Апрацаваць пад дуб.* **4.** У абмен на якую-н. гарантыю. *Аддаць пад залог. Даць тавар пад распіску.* **5.** У суправаджэнні чаго-н., што гучыць. *Ісці пад гукі марша. Спяваць пад баян.* **III.** *з Т.* **1.** Пры наяўнасці якой-н. прыметы, уласцівасці. *Змагацца пад перамаганосным сцягам. Селядцы пад марынадам.* **2.** У выніку чаго-н. *Снег пад уздзеяннем ветру ўшчыльніўся.* **3.** Ужыв. пры ўказанні на тэрміны, словы, назвы, сэнс якіх раскрываецца ці неабходна раскрыць. *Пад нашатырным спіртам разумеюць раствор аміяку.*

**ПАД...** (а таксама **ПАД'...**, **ПАДА...**), *прыстаўка.* **I.** Утварае дзеясловы са знач.: 1) дзеяння знізу ўверх, уніз чаго-н., напр.: *падлажыць, падкінуць, падважыць;* 2) набліжэння каго-, чаго-н., напр.: *падысці, пад'ехаць;* 3) дабаўлення, напр.: *падліць, падсыпаць;* 4) паўтарэння якога-н. дзеяння ўслед за іншым, суправаджэння аднаго дзеяння другім, напр.: *падтакваць, падбрэхваць;* 5) праяўлення дзеяння ў слабым ці непрыметным, скрытым выглядзе, напр.: *падглядзець, падпільнаваць.* **II.** Утварае назоўнікі і прыметнікі: 1) прыметнікі са знач. ніжняй часткі чаго-н., знаходжання ніжэй за што-н., напр.: *падводны, падстраўнікавы;* 2) назоўнікі са знач. часткі больш буйнога адзінства, напр.: *пададдзел, падатрад, падклас;* 3) прыметнікі са знач. чаго-н., што знаходзіцца ў чым-н. распараджэнні, напр.: *падначалены, падсудны;* 4) назоўнікі і прыметнікі са знач. чаго-н., што знаходзіцца паблізу ад чаго-н., напр.: *падтропікі, падлессе;* 5) назоўнікі са знач. звання, ніжэйшага за іншае, пасады памочніка, напр.: *падпалкоўнік, падшкіпер.*

**ПАДА́**, *прыназ. з Т.* Ужыв. замест «пад» перад збегам некаторых зычных, напр., *пада мной.*

**ПАДА...**, *прыстаўка.* Ужыв. замест «пад...»: 1) перад збегам зычных, напр.: *падагнаць, падарваць;* 2) перад зычнымі, пасля якіх пішацца мяккі знак або апостраф, напр.: *падалью, падаб'ю.*

**ПАДАБАРО́ННЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Падсудны, якога абараняе адвакат. ‖ *ж.* **падабаро́нная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых.

**ПАДАБА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак., каму.* Быць даспадобы, выклікаць сімпатыю да сябе. ‖ *зак.* **спадаба́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **упадаба́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (разм.).

**ПАДАБЕ́НСТВА**, -а, *н.* **1.** Што-н. падобнае на што-н., з чым-н., наяўнасць агульных ці падобных рыс. *П. характараў.* **2.** Падобнасць, блізкасць, абумоўленая агульнасцю паходжання. *П. моў.* **3.** У геаметрыі: тоеснасць формы пры адрозненні велічыні. *П. двух трохвугольнікаў.*

**ПАДАБРА́ЦЦА**, падбяру́ся, падбярэ́шся, падбярэ́цца; падбяро́мся, падберацёся, падбяру́цца; падбяры́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Скласціся, утварыцца. *Падабраліся добрыя работнікі.* **2.** Непрыметна падысці. *П. да акопаў праціўніка.* ‖ *незак.* **падбіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАДАБРА́ЦЬ**, падбяру́, падбярэ́ш, падбярэ́; падбяро́м, падберацé, падбяру́ць; падбяры́; падабра́ны; *зак.* **1.** *што.* Сабраць, падняць з зямлі. *П. рассыпаныя арэхі.* **2.** *што.* Паправіць; сагнуўшы, падцягнуць пад сябе (пра часткі цела). *П. валасы. Сабака падабраў хвост.* **3.** *каго-што.* Падмяць, наваліўшыся; прыціснуць. *Мядзведзь падабраў пад сябе паляўнічага.* **4.** *каго-што.* Выбраць адпаведнае, патрэбнае. *П. брыгаду. П. ключ да замка. П. патрэбныя словы. П. цытаты.* ‖ *незак.* **падбіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **падбо́р**, -у, *м.* (да 4 знач.) *і* **падбо́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* *Падбор кадраў. Падборка нітак патрэбнага колеру.*

**ПАДАБРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які зрабіўся добрым, дабрэйшым. *Глядзеў падабрэлымі вачамі.*

**ПАДАБРЭ́ЦЬ** *гл.* дабрэць.

**ПАДАВА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які падае што-н. куды-н. ‖ *ж.* **падава́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПАДАВА́ЦЦА** *гл.* падацца.

**ПАДАВА́ЦЬ** *гл.* падаць.

**ПАДАВІ́ЦЦА** *гл.* давіцца.

**ПАДАВІ́ЦЬ**, -даўлю́, -да́віш, -да́віць; -да́ўлены; *зак., каго-што.* **1.** Сілай пакласці канец чаму-н., знішчыць, заглушыць. *П. паўстанне. П. агонь праціўніка.* **2.** Раздушыць, перадавіць усё, многае ці ўсіх, многіх. *П. усіх жукоў.* ‖ *незак.* **падаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 1 знач.). ‖ *наз.* **падаўле́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПАДАВО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Закончыць ворыва на многіх участках.

**ПАДАГНА́ЦЬ**, падганю́, падго́ніш, падго́ніць; падагна́ў, -гна́ла; падгані́; падагна́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Гонячы (*гл.* гнаць[1] у 1 знач.), наблізіць ці загнаць пад што-н. *П. курэй пад навес. Крыгу падагнала* (безас.) *да берага.* **2.** *каго-што.* Паскорыць чый-н. бег, чыю-н. работу. *П. каня. П. адстаючых.* **3.** *што.* Давесці да патрэбнага памеру, прыладзіць, каб падыходзіла адно да аднаго. *П. шыбу да форткі. П. пінжак да фігуры.* ‖ *незак.* **падганя́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **падго́н**, -у, *м.* (да 1 і 3 знач.) *і* **падго́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (да 3 знач.).

**ПАДАГНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нёцца; *зак.* Загнуцца знізу ці пад што-н. *Край абруса падагнуўся.* ‖ *незак.* **падгіна́цца**, -а́ецца *і* **падгіба́цца**, -а́ецца.

**ПАДАГНУ́ЦЬ**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -няцё, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што.* Загнуцца знізу ці пад што-н. *П. падол. П. ногі пад сябе.* ‖ *незак.* **падгіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **падгіба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДА́ГРА**, -ы, *ж.* Хвароба суставаў і тканак, якая выклікаецца парушэннем абмену рэчываў у арганізме. ‖ *прым.* **падагры́чны**, -ая, -ае.

**ПАДАГРАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прыбор для падагравання чаго-н.

**ПАДА́ГРЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, хворы на падагру. ‖ *ж.* **падагры́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ПАДАГРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; -э́ты; *зак., што.* **1.** Крыху разагрэць. *П. суп.* **2.** *перан.* Узбудзіць, узмацніць. *П. настрой, нецярпенне.* ‖ *незак.* **падаграва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **падагрэ́ў**, -рэ́ву, *м.* (да 1 знач.; спец.) *і* **падаграва́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.). *П. вады ў басейне.*

**ПАДАГУ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Тое, што і *падагульніць.* ‖ *незак.* **падагу́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падагу́льванне**, -я, *н.*

**ПАДАГУЛЬНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніце́, -ня́ць; -гу́льнены; *зак., што.* **1.** Падвесці вынікі чаго-н. *П. суму выдаткаў.* **2.** Зрабіць абагульняючыя вывады. *П. думкі папярэдніх даследчыкаў.* ‖ *незак.* **падагульня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **падагульне́нне**, -я, *н.*

**ПАДАДЗЕ́ЦЦА**, -дзе́нуся, -дзе́нешся, -дзе́нецца; *зак.* (разм.). Адзецца лепш, чым звычайна. *Дзяўчаты пададзеліся.* ‖ *незак.* **пададзява́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАДАДЗЕ́ЦЬ**, -дзе́ну, -дзе́неш, -дзе́не; -дзе́ты; *зак., што* (разм.). Надзець пад што-н. *П. світар пад пінжак.* ‖ *незак.* **пададзява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДАЖЫНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *што.* Дажаць што-н. у многіх месцах. *П. жыта на ўсіх палетках.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што* і *без дап.* Завяршыць жніво — пра ўсіх, многіх.

**ПАДАЗВА́ЦЬ**, падзаву́, падзаве́ш, падзаве́; падзавём, падзавяце́, падзаву́ць; падазва́ў, -ва́ла; падзаві́; падазва́ны; *зак., каго (што).* Жэстам, голасам папрасіць наблізіцца. *П. насільшчыка.* ‖ *незак.* **падзыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДАЗРАВА́ЦЬ**, -раю́, -рае́ш, -рае́; -раём, -раяце́, -раю́ць *і* -ва́ю, -ва́еш, -ва́е; *незак.* **1.** *каго у чым.* Мець падазрэнне на каго-н. *П. каго-н. у крадзяжы.* **2.** *што, аб чым* і *са злуч.* «што». Меркаваць, дапускаць магчымасць чаго-н. *У хворага падазраюць адзёр. Мы і не падазравалі аб яго існаванні. Я і не падазраваў, што мяне такое падсцерагала.*

**ПАДАЗРО́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выклікае падазрэнне. *П. кашаль.* **2.** Схільны падазраваць, недаверлівы. *П. характар.* ‖ *наз.* **падазро́насць**, -і, *ж.*

**ПАДАЗРЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Меркаванне, заснаванае на сумненні ў правільнасці, законнасці чыіх-н. учынкаў, у справядлівасці чыіх-н. слоў, у сумленнасці чыіх-н. намераў. *Затрыманы па падазрэнні ў крадзяжы. Быць пад падазрэннем* або *на падазрэнні ў каго-н.* (выклікаць да сябе падазроныя адносіны з боку каго-н.). **2.** Меркаванне аб магчымасці чаго-н. *Ёсць п., што яны сёння могуць не прыехаць. П. на адзёр.*

**ПАДАІ́ЦЬ** *гл.* даіць.

**ПАДАКО́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Дошка або пліта, устаўленая ў ніжнюю частку аконнага праёма.

**ПАДАКО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Дакапаць усё, многае. *П. ямы. П. бульбу.*

**ПАДАКО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** *што.* Дакасіць у многіх месцах. *П. лугі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што* і *без дап.* Завяршыць касьбу — пра ўсіх, многіх. *Аднавяскоўцы падакошвалі і падажыналі.*

**ПАДАЛЕ́Й**, *прысл.* (разм.). Значна далей. *Пастаў вядро п.*

**ПАДАЛІКА́ТНІЧАЦЬ** *гл.* далікатнічаць.

**ПАДА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Вуснае апавяданне пра мінулае, якое перадаецца ад пакалення да пакалення. *Народнае п.*

**ПАДАПЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае (афіц., разм.). Які знаходзіцца пад чыёй-н. апекай. *Падапечнае дзіця. Паклапаціцца пра сваю падапечную* (наз.). *Падапечная тэрыторыя* (уключаная ў міжнародную сістэму апекі пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый).

**ПАДАПЛЁКА**, -і, *ДМ* -лёцы, *ж.* Скрытая, тайная прычына чаго-н. *П. інтрыгі.*

**ПАДАПРАНУ́ЦЦА**, -рану́ся, -ра́нешся, -ра́нецца; -рані́ся; *зак.* (разм.). **1.** Апрануцца лепш, па-святочнаму. *П. на вечар.* **2.** Апрануць што-н. пад верхняе адзенне. *Цяплей п.* ‖ *незак.* **падапрана́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАДАПРАНУ́ЦЬ**, -рану́, -ра́неш, -ра́не; -рані́; -рану́ты; *зак.* (разм.). **1.** *каго (што).* Апрануць лепш, у добрае адзенне, прыбраць. *П. дзяўчыну.* **2.** *што.* Апрануць пад што-н. *П. світар пад паліто.* ‖ *незак.* **падапрана́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДАПРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які злёгку сапрэў, знізу падгніў. *Падапрэлае сена.*

**ПАДАПРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *зак.* Злёгку сапрэць або сапрэць знізу. *У нізінах жыта падапрэла.* ‖ *незак.* **падаправа́ць**, -а́е.

**ПАДАРАВА́ЦЬ** *гл.* дараваць.

**ПАДАРАЖЫ́ЦЦА** *гл.* даражыцца.

**ПАДАРАЖЭ́ЦЬ** *гл.* даражэць.

**ПАДАРВА́ЦЦА**, -ву́ся, -ве́шся, -ве́цца; -вёмся, -вяце́ся, -ву́цца; -ві́ся; *зак.* **1.** Загінуць ад выбуху. *П. на міне.* **2.** Захварэць ад цяжкай працы ці ад падымання чаго-н. цяжкага. *Цягаў каменне і падарваўся.* ‖ *незак.* **падрыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАДАРВА́ЦЬ**, -ву́, -ве́ш, -ве́; -вём, -вяце́, -ву́ць; -ві́; -ва́ны; *зак., што.* **1.** Разбурыць узрывам. *П. варожы танк.* **2.** *перан.* Нанесці шкоду чаму-н., пахіснуць. *П. здароўе. П. чый-н. аўтарытэт.* ‖ *незак.* **падрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **падры́ў**, -ры́ву, *м.*

**ПАДАРО́ЖЖА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Паездка або перамяшчэнне пяшком па далёкіх краінах, мясцовасцях. *П. па Еўропе. Кругасветнае п.*

**ПАДАРО́ЖНАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* (гіст.). Пасведчанне на права карыстання ў дарозе казённымі коньмі.

**ПАДАРО́ЖНІК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто падарожнічае, вандроўнік. *Прайсці месцамі славутых падарожнікаў.* **2.** Той, хто знаходзіцца ў дарозе, прахожы. ‖ *ж.* **падаро́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАДАРО́ЖНІК**[2], -у, *м.* Тое, што і *трыпутнік.* ‖ *прым.* **падаро́жнікавы**, -ая, -ае.

**ПАДАРО́ЖНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Рабіць падарожжа, вандраваць.

**ПАДАРО́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да падарожжа. *Падарожныя нататкі.* **2.** Які звязаны з дарогай (у 3 знач.), знаходзіцца ў дарозе. *Падарожныя людзі.* **3.** *у знач. наз.* **падаро́жны**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.;* **падаро́жная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* (гл. падарожнік[1]). ○ **Падарожныя грошы** (гіст.) — аплата за праезд на паштовых конях ці за праезд па чыгунцы афіцэраў і чыноўнікаў у Расіі ў 18—19 стст.

**ПАДАРУ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Рэч, якую дораць, падарылі. *Зрабіць п. Атрымаць п.* ‖ *памянш.* **падару́начак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* ‖ *прым.* **падару́нкавы**, -ая, -ае.

**ПАДАРЫ́ЦЬ**, *гл.* дарыць.

**ПАДАСІ́НАВІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ядомы грыб з чырванавата-жоўтай шапкай.

**ПАДАСЛА́ЦЬ**[1], -дашлю́, -дашлёш, -дашлё; -дашлём, -дашляце́, -дашлю́ць; -дашлі́; -дасла́ны; *зак., каго (што).* **1.** Паслаць з тайнай мэтай. *П. шпіёна.* **2.** Прыслаць (у 2 знач.; разм.). *П. фурманку.* ‖ *незак.* **падсыла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **падсы́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж. і* **падсыла́нне**, -я, *н.*

**ПАДАСЛА́ЦЬ**[2], падсцялю́, падсце́леш, падсце́ле; падсцялі́; падасла́ны; *зак., што.* Паслаць пад што-н. *П. пярыну.* ‖ *незак.* **падсціла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **по́дсціл**, -у, *м.,* **падсці́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж. і* **падсціла́нне**, -я, *н.*

**ПАДАСНО́ВА**, -ы, *ж.* Сапраўдная прычына, аснова чаго-н. *Сацыяльная п. з'явы.*

**ПАДАСПЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Паспець з'явіцца (у час, у патрэбны момант). *Хутка падаспела падмога.*

**ПАДАСТАВА́ЦЬ**, -стаю, -стае́ш, -стае́; -стаём, -стаяце́, -стаю́ць; *зак., што.* **1.** Дастаць, выцягнуць усё, многае або вялікую колькасць чаго-н. *П. кнігі з шафы.* **2.** (*1 і 2 ас. адз. не ўжыв.*). Выняць што-н. схаванае — пра ўсіх, многіх. *Касцы падаставалі сваю перакуску і пачалі есці.* **3.** (*1 і 2 ас. адз. не ўжыв.*). Раздабыць што-н. — пра ўсіх, многіх. *Дзе яны падаставалі такія ракеткі?*

**ПАДАСЫПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* і *чаго.* Дасыпаць да якога-н. узроўню ўсё, многае або дасыпаць якую-н. колькасць чаго-н. ва ўсё, многае. *П. мяшкі збожжам.*

**ПАДА́ТАК**, -тку, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Дзяржаўны збор з насельніцтва і прадпрыемстваў. *Падаходны п. Браць п. Абкладаць падаткам.* ‖ *прым.* **пада́ткавы**, -ая, -ае.

**ПАДАТКАПЛАЦЕ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (афіц.). Плацельшчык падаткаў. ‖ *ж.* **падаткаплаце́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПАДАТКНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што.* Заткнуць знізу ці пад што-н. *П. падол спадніцы. П. коўдру.* ‖ *незак.* **падтыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДА́ТЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які лёгка паддаецца фармоўцы, апрацоўцы. *Напаленае жалеза падатлівае.* **2.** Згаворлівы, уступчывы. *П. чалавек. П. характар.* ‖ *наз.* **пада́тлівасць**, -і, *ж.*

**ПАДАЎЖА́ЦЦА** *гл.* падоўжыцца.

**ПАДАЎЖА́ЦЬ** *гл.* падоўжыць.

**ПАДАЎЖЭ́ННЕ** *гл.* падоўжыцца, падоўжыць.

**ПАДАЎЖЭ́ЦЬ** *гл.* даўжэць.

**ПАДАЎЛЕ́ННЕ** *гл.* падавіць.

**ПАДАЎЛЯ́ЦЬ** *гл.* падавіць.

**ПАДАХВО́ЦІЦЦА**, -во́чуся, -во́цішся, -во́ціцца; *зак.* (разм.). Добраахвотна ўзяцца за якую-н. справу, прапанаваць зрабіць што-н. *П. збегаць па хлеб. П. дапамагчы бацьку.* ‖ *незак.* **падахво́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДАХВО́ЦІЦЬ**, -во́чу, -во́ціш, -во́ціць; -во́чаны; *зак., каго-што* і *з інф.* Выклікаць жаданне што-н. рабіць. *П. праўленне завода пабудаваць дом. П. каго-н. да размовы.* ‖ *незак.* **падахво́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падахво́чванне**, -я, *н.*

**ПАДАХО́ДНЫ**, -ая, -ае. Які адпавядае даходу. *П. падатак.*

**ПАДА́ЦЦА**, -а́мся, -асі́ся, -а́сца; -адзі́мся, -асце́ся, -аду́цца; -а́ўся, -ала́ся, -ло́ся; *зак.* **1.** Пасунуцца, ссунуцца з месца. *П. ўсім целам назад. Дзверы лёгка падаліся пад напорам.* **2.** Адправіцца, накіравацца куды-н. (разм.). *П. ў горад. П. на вучобу.* **3.** *перан.* Прыметна пагоршаць, пастарэць. *Стары вельмі падаўся за апошні год.* ‖ *незак.* **падава́цца**, -даюся, -дае́шся, -дае́цца; -даёмся, -даяце́ся, -даю́цца.

**ПА́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Апускацца, валіцца на зямлю, уніз. *П. дагары. П. на калені. П. з ног* (таксама перан.). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра атмасферныя ападкі: ісці, выпадаць. *Падае снег.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Апускацца, звісаючы. *Складкі спадніцы прыгожа падаюць.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра націск у слове: прыходзіцца на які-н. склад. *Націск падае на другі склад.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *на каго-што.* Распаўсюджвацца ў якім-н. напрамку, пакрываць сабой (пра светлавыя з'явы). *Святло праз акно падала на падлогу. Ад дрэва падае цень.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., на каго (што).* Распаўсюджвацца, пашырацца на каго-, што-н. (пра што-н. заганнае). *На гэтага чалавека падае падазрэнне.* **7.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., на каго-што.* Прыходзіцца на чыю-н. долю, выпадаць. *Усе клопаты падаюць на маці.* **8.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Зніжацца, змяншацца (у памеры, аб'ёме, велічыні і пад.). *Акцыі падаюць. Настрой падае.* **9.** *перан.* Бегаць, насіцца (разм.). *Сабака цэлы дзень падаў па лесе.* **10.** *перан., за чым.* Вельмі хацець чаго-н., ганяцца за чым-н. (разм.). *П. за ўборамі.* **11.** *перан., за кім.* Вельмі кахаць каго-н., заляцацца да каго-н. (разм.). *Хлопцы падалі за такой прыгажуняй.* ◊ **Падаць духам** — траціць упэўненасць, бадзёрасць; адчайвацца. ‖ *зак.* **па́сці**, паду́, падзе́ш, падзе́; падзём, падзяце́, паду́ць; паў, па́ла; падзі́ (да 1, 5—7 знач.) *і* **упа́сці**, упаду́, упадзе́ш, упадзе́; упадзём, упадзяце́, упаду́ць; упа́ў, упа́ла; упадзі́ (да 1, 3, 5 і 8 знач.). ‖ *наз.* **па́данне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **падзе́нне**, -я, *н.* (да 1, 2, 5 і 8 знач.).

**ПАДА́ЦЬ**, -а́м, -асі́, -а́сць; -адзі́м, -асце́, -аду́ць; пада́ў, -ала́, -ло́; пада́й; па́дадзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Даць, паднёсшы. *П. кнігу каму-н.* **2.** *што.* Паставіць на стол (ежу). *П. кашу.* **3.** Даставіць, прывесці да месца чыёй-н. пасадкі або пагрузкі. *П. поезд да платформы. П. вагоны.* **4.** *каго-што.* Штурхнуць, пасунуць (разм.). *П. шафу ўлева.* **5.** *што.* Прадставіць у пісьмовай форме (скаргу, заяву). *П. заяву на чарговы адпачынак. П. у суд на каго-н.* (прад'явіць іск). *П. на развод* (падаць заяву на скасаванне шлюбу; разм.). **6.** *што* і *без дап.* Даць як міласціну. *П. жабраку.* **7.** *што.* Зрабіць, утварыць, аказаць (тое, што выражана наступным наз.). *П. дапамогу* (дапамагчы). *П. рэпліку* (прамовіць, сказаць што-н.). *П. прыметы жыцця* (выявіць прыметы жыцця). *П. прыклад* (паслужыць прыкладам). *П. каманду* (скамандаваць). *П. вестку* (паведаміць пра сябе). **8.** *што.* У спартыўных гульнях з мячом, шайбай і пад.: ударам паслаць мяч партнёру. *П. мяч.* **9.** *каго-што.* Адлюстраваць, вывесці, прадставіць (кніжн.). *Рэалістычна п. жыццё ў творы. Умець сябе п.* (прадставіць у лепшым выглядзе). ◊ **Падаць руку** — працягнуць руку для поціску або (перан.) для дапамогі. ‖ *незак.* **падава́ць**, -даю, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць; -дава́й. ‖ *наз.* **пада́ча**, -ы, *мн.* -ы, -да́ч, *ж.* (да 1—5, 7—9 знач.).

**ПАДА́ЧА**, -ы, *мн.* -ы, -да́ч, *ж.* **1.** *гл.* пада́ць. **2.** У спартыўных гульнях: удар, якім мяч, шайба, валан уводзяцца ў гульню. *Удалая п.*

**ПАДА́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Кусок ежы, кінуты жывёле (звычайна сабаку). *Сабака цярпліва чакае падачкі.* **2.** *перан.* Тое, што даюць каму-н. як ахвяраванне, міласціну (пагард.). *Жыць за кошт падачак.*

**ПАДАШЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Дашыць усё, многае. *Швачкі падашывалі сукенкі.*

**ПАДБА́ВІЦЬ**, -а́ўлю, -а́віш, -а́віць; -а́ўлены; *зак., што* і *чаго.* Крыху прыбавіць. *П. цукру ў чай.* ‖ *незак.* **падбаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **падба́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПАДБАДЗЁРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго.* Падбавіць упэўненасці, бадзёрасці. *П. хворую.* ‖ *незак.* **падбадзёрваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **падбадзёрыцца**, -руся, -рышся, -рыцца; *незак.* **падбадзёрвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДБАРО́ДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* Круглявасць, якая закрывае на твары пярэднюю частку ніжняй сківіцы. ‖ *прым.* **падбаро́дачны**, -ая, -ае.

**ПАДБА́ЦЬ** *гл.* дбаць.

**ПАДБЕ́ГЧЫ**, -бягу́, -бяжы́ш, -бяжы́ць; -бяжы́м, -бежыце́, -бягу́ць; -бе́г, -гла; -бяжы́; *зак.* **1.** Наблізіцца бегам да каго-, чаго-н. або пад што-н. *Сабака падбег да гаспадара. П. пад мост.* **2.** Крыху прабегчы. *Конь падбег трушком.* ‖ *незак.* **падбяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДБІРА́ЦЦА** *гл.* падабрацца.

**ПАДБІРА́ЦЬ** *гл.* падабраць.

**ПАДБІ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -бі́вак, *ж.* **1.** *гл.* падбіць[1]. **2.** Тое, чым падбіта, падшыта што-н. з адваротнага боку (разм.). *Шаўковая п.*

**ПАДБІ́ЦЬ**[1], -даб'ю́, -даб'е́ш, -даб'е́; -даб'ём, -даб'яце́, -даб'ю́ць; падбі́; -і́ты; *зак.* **1.** *што.* Прыбіць да чаго-н. знізу, прышыць спадыспаду. *П. у ботах падэшвы. П. паліто футрам.* **2.** *што.* Убіць, забіць глыбей. *П. цвікі.* **3.** *каго-што.* Ударыўшы, стрэліўшы, прымусіць упасці, вывесці са строю. *П. зайца. П. танк.* **4.** *што.* Ударам пашкодзіць, параніць. *П. вока.* ◊ **Падбіць вынік (баланс)** (разм.) — падсумаваць, падвесці вынікі. ‖ *незак.* **падбіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **падбі́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **падбо́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **падбо́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.) *і* **падбо́ечны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**ПАДБІ́ЦЬ**[2], -даб'ю́, -даб'е́ш, -даб'е́; -даб'ём, -даб'яце́, -даб'ю́ць; падбі́; -і́ты; *зак., каго (што) на што* і *з інф.* (разм.). Падбухторыць да чаго-н., угаварыць зрабіць што-н. *Хто яго на гэта падбіў?* ‖ *незак.* **падбіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДБО́Р**, -у, *м.* **1.** *гл.* падабраць. **2.** Тое, што падабрана, збор, набор чаго-н. *Цікавы кніжны п. П. кветак у букеце. Удалы п. спецыялістаў.* ◊ **Як на падбор** — аб кім-, чым-н. аднолькавага выгляду, якасці, звычайна добрай.

**ПАДБО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* **1.** *гл.* падабраць. **2.** Некалькі артыкулаў, заметак на адну тэму, надрукаваных пад агульным загалоўкам. *П. на сельскагаспадарчую тэму.*

**ПАДБО́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Рабочы, што ажыццяўляе падбор, падборку чаго-н. **2.** Прыстасаванне, машына для падбірання скошанай збажыны, травы і пад. ‖ *ж.* **падбо́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц (да 1 знач.).

**ПАДБРЫ́ЦЬ**, -рыю, -рыеш, -рые; -рыты; *зак., каго-што.* Пагаліць з бакоў, па краях. ‖ *незак.* **падбрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДБРЭ́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Суправаджаць што-н. брэхам, брахаць час ад часу. **2.** *перан., каму.* Нагаворваць, даносіць на каго-н. (пагард.). ‖ *наз.* **падбрэ́хванне**, -я, *н.*

**ПАДБРЭ́ХІЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., пагард.). Той, хто ўгодліва або з якой-н. мэтай дагаджае каму-н., падтрымлівае каго-н.

**ПАДБУХТО́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто падбухторвае. ‖ *ж.* **падбухто́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **падбухто́ршчыцкі**, -ая, -ае.

**ПАДБУХТО́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго (што)* (разм.). **1.** Падбіць што-н. зрабіць (звычайна дрэннае, заганнае). *П. да спрэчак.* **2.** Настроіць супраць каго-н. *П. сына супраць бацькі.* ‖ *незак.* **падбухто́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падбухто́рванне**, -я, *н.*

**ПАДБЯГА́ЦЬ** *гл.* падбегчы.

**ПАДБЯРО́ЗАВІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ядомы грыб з буравата-чорнай шапкай, які расце ў бярэзніку.

**ПАДВА́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., каго.* Падазваць птушак або звяроў, падрабіўшы іх голас. *П. цецерука.* ‖ *незак.* **падва́бліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДВА́ГА**, -і, *ДМ* -ва́зе, *мн.* -і, -ва́г, *ж.* Рычаг для пад'ёму цяжару. ‖ *прым.* **падва́жны**, -ая, -ае.

**ПАДВАДНЫ́** *гл.* падвесці.

**ПАДВАЕ́ННЕ** *гл.* падвоіцца, падвоіць.

**ПАДВА́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Прыстасаванне ў паравых і інш. машынах у выглядзе стрыжня для рэгуліроўкі сілы або хуткасці руху чаго-н., рычаг. **2.** Тоўстая жэрдка, пры дапамозе якой прыпадымаюць цяжары; вагар. ‖ *прым.* **падва́жнікавы**, -ая, -ае.

**ПАДВА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; падва́ж; -ва́жаны; *зак., што.* Прыпадняць вагаром, падважнікам (у 2 знач.). *П. бервяно.* ‖ *незак.* **падва́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДВАІ́ЦЬ** *гл.* дваіць.

**ПАДВА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Памяшканне пад першым паверхам будынка, ніжэй узроўню зямлі. *П. для бульбы.* **2.** Артыкул на ўсю ніжнюю частку газетнага ліста. ‖ *прым.* **падва́льны**, -ая, -ае.

**ПАДВАЛІ́ЦЬ**, -алю, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Падсыпаць вялікую колькасць чаго-н. *П. воз пяску пад прызбу.* **2.** *безас., каго-чаго.* Прыбавіцца яшчэ, у дадатак да таго, што ёсць (разм.). *Народу падваліла. За ноч падваліла снегу.* ‖ *незак.* **падва́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДВАРО́ТНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Тое, што і *падваротня* (у 2 знач.).

**ПАДВАРО́ТНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* **1.** Шырокая шчыліна паміж варотамі і зямлёй. **2.** Дошка, якая закрывае гэту шчыліну. **3.** Праём у сцяне дома для праезду, праходу. *Забегчы ў падваротню.*

**ПАДВАРО́ЧВАЦЦА** *гл.* падвярнуцца.

**ПАДВАРО́ЧВАЦЬ** *гл.* падвярнуць.

**ПАДВАРЫ́ЦЬ**, -ару́, -а́рыш, -а́рыць; -а́раны; *зак.* (разм.). **1.** *чаго.* Зварыць ці заварыць у дадатак да зваранага, заваранага раней. *П. бульбы. П. кавы.* **2.** *што.* Зваркай прымацаваць; прыварыць. *П. планку.*

**ПАДВАСТРЫ́ЦЬ**, -вастру́, -во́стрыш, -во́стрыць; -во́страны; *зак., што.* Зрабіць вастрэйшым. *П. сякеру.* ‖ *незак.* **падво́стрываць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДВА́ХТАВЫ**, -ая, -ае (спец.). Такі, які павінен заступіць на вахту для змены тых, хто стаіць на вахце. *П. матрос.*

**ПАДВЕ́ДАМНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ў чым-н. распараджэнні, падпарадкаванні. *Установа, падведамная міністэрству.* ‖ *наз.* **падве́дамнасць**, -і, *ж.*

**ПАДВЕ́ЗЦІ**[1], -вязу́, -вязе́ш, -вязе́; -вязём, -везяце́, -вязу́ць; падвёз, -ве́зла; -вязі́; -ве́зены; *зак.* **1.** *каго-што.* Везучы, наблізіць. *П. дровы к дому.* **2.** *каго-што.* Узяўшы з сабой па дарозе, давезці куды-н. *П. спадарожніка.* **3.** *што* і *чаго.* Прывёзшы, даставіць куды-н. *П. будаўнічыя матэрыялы.* ‖ *незак.* **падво́зіць**, -во́жу, -во́зіш, -во́зіць. ‖ *наз.* **падво́з**, -у, *м. і* (разм.) **падво́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* ‖ *прым.* **падвазны́**, -а́я, -о́е (да 3 знач.).

**ПАДВЕ́ЗЦІ**[2] *гл.* везці[2].

**ПАДВЕ́РГНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -е́ргся *і* -е́ргнуўся, -глася; -ніся; *зак.* Адчуць на сабе якое-н. уздзеянне, трапіць у якое-н. становішча (звычайна непрыемнае, небяспечнае і пад.). *П. нападу. П. цяжкім выпрабаванням.* ‖ *незак.* **падвярга́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАДВЕ́РГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -е́рг *і* -е́ргнуў, -гла; -ні; *зак., каго-што* і *чаму.* Зрабіць прадметам якога-н. дзеяння, паставіць у якое-н. становішча. *П. работніка крытыцы. П. небяспецы.* ‖ *незак.* **падвярга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДВЕ́РЖАНЫ**, -ая, -ае. Які падвяргаецца якому-н. уздзеянню, схільны да чаго-н. *П. хваробам.* ‖ *наз.* **падве́ржанасць**, -і, *ж.*

**ПАДВЕ́СІЦЬ**, -е́шу, -е́сіш, -е́сіць; падве́сь; -е́шаны; *зак., каго-што.* Падвесіць пад чым-н., прымацаваць да чаго-н. у вісячым становішчы. *П. лямпу пад столлю.* ‖ *незак.* **падве́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падве́ска**, -і, *ДМ* -ве́сцы, *ж. і* **падве́шванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **падве́сачны**, -ая, -ае.

**ПАДВЕ́СКА**, -і, *ДМ* -ве́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** *гл.* падвесіць. **2.** Падвеснае ўпрыгожанне. *Люстра з хрустальнымі падвескамі.*

**ПАДВЕСЛАВА́ЦЬ**, -вяслу́ю, -вяслу́еш, -вяслу́е; -вяслу́й; *зак.* (разм.). Вяслуючы, наблізіцца да чаго-н. *П. да берага.* ‖ *незак.* **падвясло́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДВЕ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Умацаваны ў вісячым становішчы, падвешаны. *П. матор.* **2.** Прыладжаны для перамяшчэння па падвешаным канаце, рэйцы. *Падвесная дарога.*

**ПАДВЕ́СЦІ**, -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзём, -ведзяце́, -вяду́ць; -вёў, -вяла́, -ло́; -вядзі́; -ве́дзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Ведучы (*гл.* весці ў 1 і 3 знач.), наблізіць да каго-, чаго-н., даставіць куды-н. *П. таварыша да знаёмых. П. войскі да пераправы. П. дарогу да новабудоўлі.* **2.** *што пад што.* Пакласці, уладкаваць пад што-н. *П. хату пад кроквы* (давесці будаўніцтва да кроквaў). *П. фундамент.* **3.** *перан., што пад што.* Знайсці патрэбныя доказы для абгрунтавання чаго-н. (кніжн.). *П. тэарэтычную базу пад сваё выказванні.* **4.** *што пад што.* Падагнаць пад што-н., падпарадкаваць чаму-н. *П. злачынства пад артыкул крымінальнага кодэкса.* **5.** *што.* Зрабіць агульны вывад з чаго-н. *П. вынікі. П. баланс.* **6.** *каго (што) пад што.* Зрабіць сваімі дзеяннямі непрыемнасць каму-н. (разм.). *П. суседа пад штраф.* **7.** *перан., каго (што).* Не апраўдаць чыіх-н. надзей, спадзяванняў, паставіць у няёмкае становішча (разм.). *П. знаёмага.* **8.** *што.* Падмаляваць пры дапамозе касметычных сродкаў. *П. бровы.* ‖ *незак.* **падво́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **падвядзе́нне**, -я, *н.* (да 1—5 і 8 знач.) *і* **падво́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **падвадны́**, -а́я, -о́е (да 1 і 2 знач.; спец.). *Падвадныя трубы.*

**ПАДВЕ́ТРАНЫ**, -ая, -ае. Процілеглы таму, куды дзьме вецер, закрыты ад ветру. *П. борт судна.*

**ПАДВІ́Д**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* У сістэматызацыі: падраздзяленне ўнутры аднаго віду. *Падвіды жывёл, раслін.*

**ПАДВІ́ЦЬ**, -даўю́, -даўе́ш, -даўе́; -даўём, -даўяце́, -даўю́ць; падвіў, -віла́, -ло́; -ві́; -віты; *зак., што.* Злёгку завіць. *П. валасы.* ‖ *незак.* **падвіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **падві́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **падвіва́нне**, -я, *н.*

**ПАДВО́БЛАЧНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца вельмі высока, пад воблакамі. *Падвоблачная вышыня.*

**ПАДВО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -во́д, *ж.* Запрэжаны воз, калёсы. *Прыехаць на падводзе.* ‖ *прым.* **падво́дны**, -ая, -ае.

**ПАДВО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Марак, які служыць у падводным флоце. **2.** Спецыяліст па падводных, вадалазных работах.

Зрабіць больш актыўным, прыўзнятым, палепшыць. *П. дух. П. цікавасць да чаго-н.* **10.** *што.* Наладжваючы, палепшыць, развіць. *П. гаспадарку.* **11.** *што.* Зрабіць, пачаць дзеянне, названае назоўнікам. *П. бунт* (узбунтавацца). *П. смех. П. трывогу. П. пытанне.* **12.** *што.* Тое, што і *узараць* (спец.). *П. цаліну.* ‖ *незак.* **падымáць**, -áю, -áеш, -áе *і* **паднімáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **паднянце**, -я, *н.* (да 1—3, 6—9 і 10 знач.), **паднімáнне**, -я, *н.* (да 1—4, 7—9 і 12 знач.) *і* **пад'ём**, -у, *м.* (да 2, 3, 7 і 12 знач.). ‖ *прым.* **пад'ёмны**, -ая, -ае (да 2, 3 і 7 знач.).

**ПАДÓБНАСЦЬ**, -і, *ж.* Тое, што і *падабенства* (у 1 і 3 знач.). *П. двух трохвугольнікаў.*

**ПАДÓБНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае падабенства з кім-, чым-н., нагадвае каго-, што-н. *Падобныя з твару.* **2.** Такі, як гэты (пра які ідзе гаворка). *Другі п. выпадак здарыўся ў іншым месцы.* **3.** У геаметрыі: тоесны па форме, але розны па велічыні. *Падобныя трохвугольнікі.* ○ **І падобнае** (скарочана на пісьме «і пад.») — ужыв. ў канцы пералічэння тоесных прадметаў, з'яў і інш.).

**ПАДÓЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ніжні край сукенкі, спадніцы. *Трымаецца за чый-н. п.* (пра дзіця; таксама перан.: пра бездапаможныя, нерашучыя паводзіны каго-н.).

**ПАДÓНКІ**, -аў, *адз.* падóнак, -нка, *м.* **1.** Рэшткі вадкасці на дне разам з асадкам. *Выліць п. з балеі.* **2.** *перан.* Дэкласаваныя, разбэшчаныя, злачынныя элементы грамадства (пагард.).

**ПАДÓЎГУ**, *прысл.* На працягу доўгага часу. *П. не бываць у роднай вёсцы.*

**ПАДÓЎЖАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае даўгаватую форму. *Малочнае возера мае падоўжаную форму.* **2.** Больш працяглы, доўгі. У граматыцы: вымаўлены працягла. *Падоўжаныя зычныя гукі.*

**ПАДÓЎЖНЫ**, -ая, -ае. Размешчаны па даўжыні чаго-н.; *проціл.* папярочны. *П. разрэз. Падоўжная сцяна.*

**ПАДÓЎЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* Стаць даўжэйшым. *Цень падоўжыўся. Ночы падоўжыліся.* ‖ *незак.* **падаўжáцца**, -áецца. ‖ *наз.* **падаўжэ́нне**, -я, *н.*

**ПАДÓЎЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* Зрабіць даўжэйшым. *П. вуду. П. рэйс.* ‖ *незак.* **падаўжáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **падаўжэ́нне**, -я, *н.*

**ПАДÓХНУЦЬ** *гл.* дохнуць.

**ПАДПАДÁЦЬ** *гл.* падпасці.

**ПАДПАІ́ЦЬ**, -паю, -пóіш, -пóіць; -пóены; *зак., каго (што)* (разм.). Напаіць з якім-н. намерам да ап'янення. ‖ *незак.* **падпóйваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДПÁЛ**, -у, *м.* **1.** *гл.* падпаліць. **2.** Смалякі, трэскі і пад., што служаць для распальвання печы. *Прывезці смалякоў на п.* ‖ *прым.* **падпáльны**, -ая, -ае.

**ПАДПÁЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Рыжаватая або белаватая пляма на поўсці жывёлы. *Карова чорная з падпалінамі.*

**ПАДПАЛІ́ЦЬ**, -палю́, -пáліш, -пáліць; -пáлены; *зак., што.* **1.** Паднёсшы агонь, запаліць. *П. дровы.* **2.** Наўмысна, са злосным намерам учыніць пажар дзе-н. *П. хату.* **3.** Даць падгарэць чаму-н. *П. пірог.* **4.** і *у чым.* Раскласці агонь у печы, каб згатаваць ежу, ацяпліць памяшканне. *П. печ* або *у печы.* ‖ *незак.* **падпáльваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падпáльванне**, -я, *н. і* **падпáл**, -у, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**ПАДПАЛКÓЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Афіцэрскае званне, чын, рангам вышэйшы за маёра і ніжэйшы за палкоўніка, а таксама асоба, якая мае гэта званне. ‖ *прым.* **падпалкóўніцкі**, -ая, -ае.

**ПАДПÁЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто наўмысна ўчыніў пажар. *Падпальшчыкаў знайсці не ўдалося.* ◊ **Падпальшчык вайны** (пагард.) — той, хто вядзе прапаганду захопніцкай вайны; агрэсар. ‖ *ж.* **падпáльшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **падпáльшчыцкі**, -ая, -ае.

**ПАДПАМПАВÁЦЬ**, -пýю, -пýеш, -пýе; -пýй; -пaвáны; *зак., што і чаго.* Дадаткова напампаваць. *П. паветра ў камеру.* ‖ *незак.* **падпампóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДПАРАДКАВÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. У граматыцы: які мае адносіны да будовы сказаў, утвораных па спосабе падпарадкавання. *Падпарадкавальныя злучнікі.*

**ПАДПАРÁДКАВАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* падпарадкавацца, падпарадкаваць. **2.** У граматыцы: фармальная залежнасць адных слоў ці сказаў ад другіх. *П. даданых сказаў.*

**ПАДПАРÁДКАВАЦЦА**, -куюся, -куешся, -куецца; -куйся; *зак.* і *незак.* Стаць (быць) у залежнасці ад каго-, чаго-н., падначаліцца (падначальвацца) каму-, чаму-н. *П. загаду.* ‖ *незак.* **падпарадкóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **падпарáдкаванне**, -я, *н.*

**ПАДПАРÁДКАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць залежным, паставіць у залежнасць ад каго-, чаго-н., прымусіць дзейнічаць адпаведна чаму-н. *П. каго-н. свайму ўплыву. П. жыццё адзінай мэце.* **2.** *каго-што.* Паставіць пад непасрэднае кіраўніцтва, перадаць у чыё-н. непасрэднае распараджэнне, падначаліць. *П. інстытут Акадэміі навук.* **3.** *што.* У граматыцы: звязаць паводле спосабу падпарадкавання. ‖ *незак.* **падпарадкóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падпарáдкаванне**, -я, *н.* *Знаходзіцца ў чым-н. падпарадкаванні.*

**ПАДПАРÓЦЬ**, -парý, -пóраш, -пóра; -пары́; -пóраты; *зак., што.* Распароць знізу або крыху знутры. *П. падкладку.* ‖ *незак.* **падпóрваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДПАРÝЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** У царскай арміі: афіцэрскі чын, рангам ніжэйшы за паручніка, а таксама асоба, якая мела гэты чын. **2.** У Войску Польскім і іншых арміях: воінскае званне малодшага афіцэра, а таксама асоба, якая мела гэта званне. ‖ *прым.* **падпарýчніцкі**, -ая, -ае.

**ПАДПÁСАК**, -ска, *мн.* -скі, -скаў, *м.* Падлетак, які дапамагае пастуху. ‖ *прым.* **падпáскавы**, -ая, -ае.

**ПАДПÁСЦІ**, -падý, -падзéш, -падзé; -падзём, -падзяцé, -падýць; -пáў, -пáла; -падзí; *зак.* **1.** *пад што.* Апынуцца пад уплывам каго-, чаго-н., пад уздзеяннем чаго-н. (адмоўнага). *П. пад шкодны ўплыў.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Нечакана ўзнікнуць (разм.). *Падпала ахвота.* ‖ *незак.* **падпадáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПАДПАЎЗЦІ́**, -зý, -зéш, -зé; -зём, -зяцé, -зýць; -пóўз, -паўзлá, -лó; -зí; *зак.* **1.** Наблізіцца да каго-, чаго-н. паўзком. *П. да варожага дота.* **2.** Паўзком забрацца пад што-н. *П. пад куст.* ‖ *незак.* **падпаўзáць**, -áю, -áеш, -áе *і* **падпóўзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДПÁХА**, -і, *ДМ* -пáсе, *мн.* -і, -пáх, *ж.* Тое, што і *паха.* ‖ *прым.* **падпáхавы**, -ая, -ае. *Падпахавая ямка.*

**ПАДПÁШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Кавалак шчыльнай тканіны, прышыты знутры адзення пад пахамі, для засцярогі адзення ад поту.

**ПАДПЕРАЗÁЦЬ**, -паражý, -пярáжаш, -пярáжа; -пераж́ы; *зак., каго-што.* Надзець на каго-н. пояс, папругу. ‖ *незак.* **падпярáзваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **падперазáцца**, -паражýся, -пярáжашся, -пярáжацца; -паражы́ся; *незак.* **падпярáзвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДПЕ́РЦІ**, падапрý, падапрэ́ш, падапрэ́; падапрóм, падапрацé, падапрýць; падпёр, -пéрла; падапры́; -пёрты; *зак.* **1.** *чым, што.* Паставіць падпорку для падтрымкі чаго-н., падтрымаць чым-н. **2.** *асаб.* і *безас.* Пра наступленне крайняй неабходнасці (разм.). *Такая нявыкрутка падперла.* ‖ *незак.* **падпірáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПАДПЕ́РЦІСЯ**, падапрýся, падапрэ́шся, падапрэ́цца; падапрóмся, падапрацéся, падапрýцца; падпёрся, -пéрлася; падапры́ся; *зак.* Абаперціся чым-н. на што-н. *П. локцямі.* ‖ *незак.* **падпірáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ПАДПІЛАВÁЦЬ**, -лýю, -лýеш, -лýе; -лýй; -лавáны; *зак., што.* **1.** Падрэзаць пілой, напільнікам. *П. слуп.* **2.** Пілуючы, падкараціць, стачыць. *П. рогі.* ‖ *незак.* **падпілóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падпілóўванне**, -я, *н. і* **падпілóўка**, -і, *ДМ* -лóўцы, *ж.*

**ПАДПІЛЬНАВÁЦЬ**, -нýю, -нýеш, -нýе; -нýй; -навáны; *зак., каго-што.* Падсцерагаючы, дачакацца з'яўлення каго-, чаго-н. *П. звера.* ‖ *незак.* **падпільнóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДПІРÁЦЦА** *гл.* падперціся.

**ПАДПІРÁЦЬ** *гл.* падперці.

**ПАДПІСÁЦЦА**, -ішýся, -íшашся, -íшацца; -ішы́ся; *зак.* **1.** Паставіць свой подпіс пад чым-н. *П. пад рэцэнзіяй.* **2.** *на што.* Стаць падпісчыкам чаго-н. *П. на перыядычныя выданні.* ‖ *незак.* **падпíсвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *незак.* **падпісáнне**, -я, *н.* (да 1 знач.), **падпíсванне**, -я, *н.* (да 1

знач.) *і* **падпіска**, -і, *ДМ* падпі́сцы, *ж.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **падпі́сачны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПАДПІСА́ЦЬ**, -ішу́, -і́шаш, -і́ша; -ішы́; -і́саны; *зак.* **1.** *што.* Пацвердзіць, заверыць, паставіўшы подпіс. *П. загад. П. дагавор* (заключыць яго). **2.** *што.* Прыпісаць пад чым-н. *П. некалькі радкоў.* **3.** *што.* Зрабіць які-н. надпіс, паметку на чым-н. *П. сшытак.* **4.** *каго (што) на што.* Уключыць у лік падпісчыкаў. *П. каго-н. на часопіс.* ‖ *незак.* **падпі́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падпіса́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.), **падпі́сванне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.), **падпі́ска**, -і, *ДМ* -сцы, *ж.* (да 4 знач.) *і* **по́дпіс**, -у, *м.* (да 1 знач.). *Падпісанне дагавора. Падпісванне сшытка. Падпіска на газеты. Даць дакумент на подпіс.*

**ПАДПІ́СКА**, -і, *ДМ* -пі́сцы, *ж.* **1.** *гл.* падпісацца, падпісаць. **2.** Пісьмовае абавязацельства ў чым-н. *Узяць падпіску аб нявыездзе.*

**ПАДПІСНЫ́**, -а́я, -о́е. Які атрымліваецца па падпісцы, падпісчыкамі. *Падпісныя выданні.* ○ **Падпісны ліст** — ліст для збору грошай на карысць каго-, чаго-н., на якім удзельнікі збору ставяць свае подпісы.

**ПАДПІ́СЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая мае падпіску на якое-н. друкаванае выданне. *П. на газеты.* ‖ *ж.* **падпі́счыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПАДПІХНУ́ЦЬ**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* Тое, што і *падапхнуць* (у 1 знач.). ‖ *незак.* **падпіха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДПІ́ЦЬ**, падап'ю́, падап'éш, падап'é; падап'ём, падап'яцé, падап'ю́ць; падпі́ў, пілá; *зак.* (разм.). Тое, што і *падвыпіць.*

**ПАДПЛЫ́СЦІ** *і* **ПАДПЛЫ́ЦЬ**, -ыву́, -ывéш, -ывé; -ывём, -ывяцé, -ыву́ць; -ы́ў, -ылá, -ло́; -ыві́; *зак.* **1.** Плывучы, наблізіцца да каго-, чаго-н. *П. да вострава.* **2.** Плывучы, трапіць пад што-н. *П. пад мост.* ‖ *незак.* **падплыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДПО́ЙВАЦЬ** *гл.* падпаіць.

**ПАДПО́ЛЛЕ**, -я, *н.* **1.** Памяшканне пад падлогай, падвал. *Засыпаць бульбу ў п.* **2.** Арганізацыя, грамадскія групы, якія дзейнічаюць тайна ад улад, а таксама сама дзейнасць у такіх арганізацыях, групах. *Рэвалюцыйнае п. Ісці ў п.* ‖ *прым.* **падпо́льны**, -ая, -ае.

**ПАДПО́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая займаецца падпольнай дзейнасцю. ‖ *ж.* **падпо́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **падпо́льшчыцкі**, -ая, -ае.

**ПАДПО́РВАЦЬ** *гл.* падпароць.

**ПАДПО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* і **ПАДПО́РА**, -ы, *мн.* -ы, -по́р, *ж.* Палка, брус, слуп і пад., якімі падпіраюць што-н. *П. пад яблыню.*

**ПАДПО́РНЫ**, -ая, -ае. Які падтрымлівае што-н., служыць падпоркай. *П. слуп.*

**ПАДПО́ЎЗВАЦЬ** *гл.* падпаўзці.

**ПАДПРА́ВІЦЬ**, -рáўлю, -рáвіш, -рáвіць; -рáўлены; *зак., што.* Крыху выправіць, паправіць. *П. дах. П. чарцёж.* ‖ *незак.* **падпраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **падпра́ўка**, -і, *ДМ* -рáўцы, *ж.*

**ПАДПРА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што* і *чаго.* Пражачы, прыгатаваць для яды. *П. боб.* ‖ *незак.* **падпра́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДПРА́ПАРШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У царскай арміі: вышэйшае званне унтэр-афіцэрскага саставу, а таксама асоба, якая мела гэта званне. ‖ *прым.* **падпра́паршчыцкі**, -ая, -ае.

**ПАДПУСКНЫ́** *гл.* подпуск.

**ПАДПУСЦІ́ЦЬ**, -ушчу́, -у́сціш, -у́сціць; -у́шчаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Даць наблізіцца, падысці. *П. звера на адлегласць стрэлу.* **2.** *што.* Сказаць, скарыстаўшы зручны момант (разм.). *П. жарт. П. шпільку* (перан.). ‖ *незак.* **падпуска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДПЯВА́ЛА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -ва́л (разм., неадабр.). Той, хто ўгодліва падтрымлівае каго-н. з карыслівых меркаванняў. *Абкружыць сябе падпявaламі.*

**ПАДПЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каму.* **1.** Спяваць, уторачы каму-, чаму-н. *П. басам.* **2.** *перан.* Згаджацца з кім-н. з карыслівых меркаванняў (разм., неадабр.).

**ПАДПЯРА́ЗВАЦЦА** *гл.* падперазацца.

**ПАДПЯРА́ЗВАЦЬ** *гл.* падперазаць.

**ПАДРАБІ́ЦЬ**, -раблю́, -ро́біш, -ро́біць; -ро́блены; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць што-н. фальшывае або падобнае да чаго-н. *П. дакументы. П. почырк.* **2.** *чаго* і *без дап.* Зарабіць дадаткова, падзарабіць. ‖ *незак.* **падрабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **падро́бліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падро́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *ж.* (да 1 знач.).

**ПАДРАБРЫННЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *падрэберны.*

**ПАДРАБЯ́ЗНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* падрабязны. **2.** Прыватная дэталь, дробная акалічнасць якой-н. справы, з'явы. *Звяртаць увагу на падрабязнасці.*

**ПАДРАБЯ́ЗНЫ**, -ая, -ае. Вельмі поўны, з усімі дэталямі, дробязнымі акалічнасцямі. *П. план. Падрабязна* (прысл.) *усё расказаць.* ‖ *наз.* **падрабя́знасць**, -і, *ж.*

**ПАДРА́Д**[1], -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дагавор аб выкананні адным бокам пэўнай работы па заказе другога боку, а таксама работа, што выконваецца паводле гэтага дагавору. *П. на пабудову школы. Брыгадны п.* (які заключаецца брыгадай рабочых непасрэдна з упраўленнем або трэстам). ‖ *прым.* **падра́дны**, -ая, -ае. *Падрадная арганізацыя. Падрадныя работы.*

**ПАДРА́Д**[2], *прысл.* Непасрэдна адзін за другім, без пропуску. *Прачытаў 200 старонак п.*

**ПАДРАДЗІ́ЦЦА**, -раджу́ся, -рáдзішся, -рáдзіцца; *зак., з інф.* Узяцца, дамовіцца выканаць якую-н. работу. *П. рубіць зруб.* ‖ *незак.* **падраджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАДРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -рáдзіш, -рáдзіць; -рáджаны; *зак., каго-што.* Наняць для часовай работы, дастаўкі чаго-н. *П. майстроў.* ‖ *незак.* **падраджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДРАДКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Размешчаны пад радкамі. *Падрадковая заўвага* (унізе старонкі). **2.** Пра пераклад: дакладны, літаральны, слова ў слова.

**ПАДРАДКО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Падрадковы, літаральны пераклад якога-н. тэксту. *Перакладаць вершы па падрадкоўніку.*

**ПАДРА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Арганізацыя (або, раней, асобны чалавек), якая займаецца работамі па падрадах[1]. ‖ *прым.* **падра́дчыцкі**, -ая, -ае.

**ПАДРАЗА́ННЕ** *гл.* падрэзаць.

**ПАДРАЗА́ЦЬ** *гл.* падрэзаць.

**ПАДРАЗДЗЕ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Частка раздзела.

**ПАДРАЗДЗЯЛЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** *гл.* падраздзяліць. **2.** Вайсковая адзінка ў складзе большай вайсковай часці. *Стралковае п.*

**ПАДРАЗДЗЯЛІ́ЦЬ**, -дзялю́, -дзе́ліш, -дзе́ліць; -дзе́лены; *зак., каго-што.* Раздзяліць на драбнейшыя часткі, разрады. *П. літаратуру на перыяды.* ‖ *незак.* **падраздзяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **падраздзяле́нне**, -я, *н.*

**ПАДРАЗДЗЯЛЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -я́ецца; *незак.* Дзяліцца, распадацца на драбнейшыя часткі, разрады. *Рота падраздзяляецца на ўзводы.*

**ПАДРАЗУМЯВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* Мецца на ўвазе, застаючыся нявыказаным. *Гэта рашэнне само сабою падразумяваецца.*

**ПАДРАЗУМЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што.* Мець на ўвазе, дапускаць у думках, не выказваючы. *Што вы пад гэтым падразумяваеце?*

**ПАДРАМАНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што* (разм.). Зрабіць невялікі рамонт. *П. абутак.*

**ПАДРА́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Каркас, на які нацягваецца палатно для жывапіснай работы.

**ПАДРА́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* (спец.). Звер або птушка, раненыя паляўнічым.

**ПАДРА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што* (спец.). Злёгку параніць (звера, птушку). ‖ *незак.* **падра́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДРА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У служыцеляў царквы: доўгая з вузкімі рукавамі адзежына, паверх якой надзяваецца ра́са.

**ПАДРАСЦІ́**, -расту́, -расцéш, -расцé; -расцём, -расцяцé, -расту́ць; падро́с, -раслá, -ло́; *зак.* Трохі вырасці, стаць старэйшым. *Дрэўцы падраслі. Дзяўчаткі за лета падраслі.* ‖ *незак.* **падраста́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДРАЎНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* Зрабіць больш роўным. *П. пляцоўку. П. бараду.* ‖ *незак.* **падраўно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДРАХУ́НАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* **1.** Вынік якой-н. дзейнасці, заняткаў і пад. *Падрахункі працоўнага дня.* **2.** Агульная сума. *Запісаць п. у кнігу.* ‖ *прым.* **падраху́нкавы**, -ая, -ае. *Падрахункавая лічба.*

**ПАДРА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзярэ́цца; *зак.* Тое, што і *парвацца* (у 2 знач.).

**ПАДРА́ЦЬ**, -дзяру́, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзяро́м, -дзерацё, -дзяру́ць; -дзяры́; -дра́ны; *зак.* **1.** *што.* Тое, што і *парваць* (у 1 і 2 знач.). *П. паперу. П. адзенне.* **2.** *каго.* Разрываючы, забіць усіх, многіх (пра драпежных птушак, звяроў). *Каршун падраў многа курэй.* **3.** *чаго.* Пацерці на тарцы нейкую колькасць чаго-н. *П. крыху бульбы.*

**ПАДРО́БКА**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* **1.** *гл.* падрабіць. **2.** Падробленая рэч. *П. пад аметыст.*

**ПАДРО́БЛІВАЦЬ** *гл.* падрабіць.

**ПАДРО́СТ**, -у, *М* -сце, *м.* (спец.). Маладыя дрэвы асноўнай для дадзенага лесу пароды.

**ПАДРУБІ́ЦЬ**, -ублю́, -у́біш, -у́біць; -у́блены; *зак., што.* Падшыць, загнуўшы край. *П. сукенку.* ‖ *незак.* **падру́бліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падру́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *ж.*

**ПАДРУЖЫ́ЦЦА**, -ужу́ся, -у́жышся, -у́жыцца; *зак.* Стаць другам каго-н.; пасябраваць. *Жанчыны моцна падружыліся.*

**ПАДРУЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліцё, -ля́ць; *зак., што* і *без дап.* Кіруючы рулём, падвесці машыну, самалёт і пад. куды-н., да чаго-н. *П. самалёт да месца пасадкі.* ‖ *незак.* **падру́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДРУМЯ́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* **1.** Падфарбаваць сабе твар румянамі. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць падрумяненым, падпячыся да светла-карычневага колеру. *Булкі падрумяніліся.* ‖ *незак.* **падрумя́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДРУМЯ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак.* **1.** *каго-што.* Падфарбаваць румянамі. *П. шчокі.* **2.** *што.* Смажачы, пекучы, зрабіць румяным, карычняватым. *П. мяса.* ‖ *незак.* **падрумя́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДРЫВА́ЦЦА** *гл.* падарвацца.

**ПАДРЫВА́ЦЬ**[1] *гл.* падарваць.

**ПАДРЫВА́ЦЬ**[2] *гл.* падрыць.

**ПАДРЫ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Дрыжаць, дрыгаць злёгку, час ад часу. *Нага падрыгвае.*

**ПАДРЫСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., што.* **1.** Тое, што і *падмаляваць* (у 1 знач.). **2.** Падправіць (рысунак). *П. партрэт.* ‖ *незак.* **падрысо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДРЫ́Ў** *гл.* падарваць.

**ПАДРЫЎНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Спецыяліст па падрыўных работах.

**ПАДРЫЎНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які служыць для падрыву, мае адносіны да ўзрывання чаго-н. *П. матэрыял. Падрыўныя работы.* **2.** *перан.* Накіраваны на падрыў чаго-н., нанясенне шкоды чаму-н. *Падрыўная дзейнасць.*

**ПАДРЫХТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* **1.** *што.* Правесці папярэднюю работу для ажыццяўлення, выканання чаго-н. *П. рукапіс да набору.* **2.** *каго (што).* Навучыць, даць неабходныя веды для чаго-н. *П. спецыялістаў.* **3.** *каго (што).* Папярэднім паведамленнем настроіць для ўспрымання чаго-н. *П. каго-н. да непрыемнай навіны.* ‖ *незак.* **падрыхто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **падрыхтава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *незак.* **падрыхто́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **падрыхто́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* *Артылерыйская п.* (абстрэл пазіцый праціўніка перад наступленнем войск).

**ПАДРЫХТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** *гл.* падрыхтаваць. **2.** Запас ведаў, атрыманых кім-н. *Прыйсці ў інстытут з добрай падрыхтоўкай.*

**ПАДРЫХТО́ЎЧЫ**, -ая, -ае. Які служыць для падрыхтоўкі да чаго-н. *Падрыхтоўчыя курсы. Падрыхтоўчая работа.*

**ПАДРЫ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́е; -ры́ты; *зак.* Узрыхліць зямлю пад чым-н., знізу чаго-н. (пра жывёл). *Свіння падрыла яблыню.* ‖ *незак.* **падрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДРЭ́БЕРНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца пад рэбрамі. *Падрэберная вобласць.*

**ПАДРЭ́ЗАЦЬ**, -э́жу, -э́жаш, -э́жа; -э́ж; -э́заны; *зак.* **1.** *што.* Зрэзаць, разрэзаць знізу. *П. сцябло.* **2.** *што.* Падкараціць, абразаючы. *П. валасы.* **3.** *чаго.* Нарэзаць дадаткова, яшчэ (разм.). *П. каўбасы.* **4.** *каго (што).* Тое, што і *паддзець*[2] (у 2 знач.; разм.). *П. дакладчыка.* ‖ *незак.* **падраза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **падрэ́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падраза́нне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.), **падрэ́званне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.), **падрэ́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 1—3 знач.) *і* **падрэ́з**, -у, *м.* (да 1 знач.; спец.).

**ПАДСА́ДЖВАЦЦА** *гл.* падсесці.

**ПАДСАДЗІ́ЦЬ**, -аджу́, -а́дзіш, -а́дзіць; -а́джаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Памагчы каму-н. сесці, узабрацца куды-н. *П. хлопчыка на воз.* **2.** *каго-што.* Пасадзіць, змясціць побач, разам з кім-н. *П. дзяўчынку да сябровак. П. пчол у вулей.* **3.** *каго (што).* Узяць у якасці спадарожніка (у машыну, на калёсы і пад.). **4.** *што* і *чаго.* Дадаткова пасадзіць (пра расліны). *П. буракоў.* **5.** *што.* Прырасціць, прыжывіць (спец.). *П. скуру.* ‖ *незак.* **падса́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падса́джванне**, -я, *н.* (да 1—4 знач.), **падса́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 2, 4 і 5 знач.) *і* **падса́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 4 знач.). ‖ *прым.* **падса́дны**, -ая, -ае (да 4 знач.). *Падсадныя дрэвы.*

**ПАДСАЛАДЗІ́ЦЬ**, -ладжу́, -ло́дзіш, -ло́дзіць; -ло́джаны; *зак., што.* Зрабіць трохі ці больш салодкім. *П. сок.* ‖ *незак.* **падсало́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДСАЛІ́ЦЬ**, -салю́, -со́ліш, -со́ліць; -со́лены; *зак., што.* Падбавіць у што-н. солі. *П. булён.* ‖ *незак.* **падсо́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДСВЕ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Асвятляць знізу. *П. карціны.* ‖ *зак.* **падсвяці́ць**, -свячу́, -све́ціш, -све́ціць; -све́чаны. ‖ *наз.* **падсве́чванне**, -я, *н. і* **падсве́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**ПАДСВЕ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Падстаўка для свечкі ці свечак. *Медны п.*

**ПАДСВІ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Парася ва ўзросце ад 4 да 10 месяцаў.

**ПАДСВІ́СТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каму-чаму.* Свістаць у такт, суправаджаючы спевы, ігру і пад. ‖ *зак.* **падсвіста́ць**, -вішчу́, -ві́шчаш, -ві́шча; -вішчы́.

**ПАДСВЯДО́МАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* падсвядомы. **2.** Не зусім усвядомленыя думкі, пачуцці, уяўленні. *Дзесьці ў падсвядомасці мільганула надзея.*

**ПАДСВЯДО́МЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ў падсвядомасці (у 2 знач.), інстынктыўны. *Падсвядомыя рухі.* ‖ *наз.* **падсвядо́масць**, -і, *ж.*

**ПАДСВЯЦІ́ЦЬ** *гл.* падсвечваць.

**ПАДСЕ́ДЗЕЦЬ**, -е́джу, -е́дзіш, -е́дзіць; -е́дзь; *зак., каго* (разм.). Пашкодзіць каму-н. у чым-н., зрабіць непрыемнасць. *П. таварыша па службе.* ‖ *незак.* **падсе́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДСЕ́КЧЫ** *гл.* падсячы.

**ПАДСЕ́СЦІ**, -ся́ду, -ся́дзеш, -ся́дзе; -се́ў, -се́ла; -ся́дзь; *зак.* Сесці каля каго-, чаго-н., да каго-, чаго-н. *П. да акна.* ‖ *незак.* **падсяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **падса́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДСЕ́ЧКА** *гл.* падсячы.

**ПАДСЕ́ЯЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; -е́й; -е́яны; *зак., што* і *чаго.* Пасеяць яшчэ, у дадатак да чаго-н. *П. гароху.* ‖ *незак.* **падсява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **падсява́нне**, -я, *н. і* **падсе́ў**, -се́ву, *м.*

**ПАДСІЛКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., каго (што)* (разм.). Накарміць для надання сілы. *П. дзяцей перад дарогай.* ‖ *незак.* **падсілко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **падсілкава́цца**, -ку́юся, -ку́ешся, -ку́ецца; -ку́йся (да 2 знач.); *незак.* **падсілко́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **падсілкава́нне**, -я, *н. і* **падсілко́ўванне**, -я, *н.*

**ПАДСІНІ́ЦЬ** *гл.* сініць.

**ПАДСІ́НЬВАННЕ** *гл.* сініць.

**ПАДСІ́НЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *сініць* (у 2 знач.).

**ПАДСКА́КВАЦЬ** *гл.* падскочыць.

**ПАДСКВА́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* Скварачыся, стаць гатовым для яды. *Сала добра падскварылася.* ‖ *незак.* **падсква́рвацца**, -аецца.

**ПАДСКВА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* і *чаго.* Прыгатаваць для ежы скваранем. *П. крыху сала.* ‖ *незак.* **падсква́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падсква́рванне**, -я, *н.*

**ПАДСКО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак.* **1.** Наблізіцца скачкамі. *П. да тэлефона.* **2.** Зрабіць рэзкі рух, скачок уверх. *П. ад радаснай навіны.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Рэзка падняцца, павялічыцца (разм.). *Падскочыла тэмпература. Цэны падскочылі.* **4.** Зайсці, забегчы куды-н., да каго-н. ненадоўга (разм.). *Падскочу на хвілінку да Міколы.* ‖ *незак.* **падскáкваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—3 знач.). ‖ *наз.* **падскáкванне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.) *і* **падско́к**, -у, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**ПАДСКРЭ́БЦІ**, -рабу́, -рабе́ш, -рабе́; -рабём, -рабяце́, -рабу́ць; -ро́б, -рэ́бла; -рабі́; -рэ́бены; *зак., што.* Падчысціць або сабраць рэшткі, саскрабаючы. *П. кашу з каструлі.* ‖ *незак.* **падскрабáць**, -áю, -áеш, -áе *і* **падскрэ́бваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДСКУ́РНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца пад скурай або ўводзіцца пад скуру. *П. слой тлушчу. Падскурнае ўпырскванне.*

**ПАДСЛЕ́ДНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца пад следствам. *Паказанні падследнага* (наз.).

**ПАДСЛЕПАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Вельмі блізарукі, які дрэнна бачыць. ‖ *наз.* **падслепавáтасць**, -і, *ж.*

**ПАДСЛУЖЫ́ЦЦА**, -ужу́ся, -у́жышся, -у́жыцца; *зак., да каго* (разм.). Ліслівай паслужлівасцю дабіцца чыёй-н. прыхільнасці. ‖ *незак.* **падслу́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДСЛУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Употай прыслухоўваючыся, пачуць сказанае другому. *П. сакрэт.* ‖ *незак.* **падслу́хваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **падслухо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **падслу́хванне**, -я, *н і* **падслухо́ўванне**, -я, *н.*

**ПАДСМА́ЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* Смажачыся, стаць гатовым або абсмажыцца з паверхні. *Сала падсмажылася.* ‖ *незак.* **падсмáжвацца**, -аецца.

**ПАДСМА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -смáж; -жаны; *зак., што* і *чаго.* Прыгатаваць для яды смажаннем або абсмажыць зверху. *П. грыбоў.* ‖ *незак.* **падсмáжваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падсмáжванне**, -я, *н.*

**ПАДСМАЛІ́ЦЬ**[1], -малю́, -мо́ліш, -мо́ліць; -мо́лены; *зак., што.* Заліць расстопленай смалой. *П. лодку.* ‖ *незак.* **падсмо́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДСМАЛІ́ЦЬ**[2], -алю́, -áліш, -áліць; -áлены; *зак., што.* Злёгку або дадаткова абпаліць агнём. *П. валасы.* ‖ *незак.* **падсмáльваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДСМЕ́ЙВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак., з каго-чаго.* Смеючыся, жартаваць з каго-, чаго-н. *П. з дзівака.*

**ПАДСНЕ́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Травяністая расліна, якая цвіце белымі або блакітнымі кветкамі адразу пасля раставання снегу.

**ПАДСНЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца пад снегам, узяты з-пад снегу. *Падснежныя воды.*

**ПАДСО́БКА**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* (разм.). Падсобнае памяшканне.

**ПАДСО́БНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Падсобны рабочы. ‖ *ж.* **падсо́бніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАДСО́БНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны ў дапамогу іншаму; дапаможны. *Падсобнае памяшканне. П. рабочы.*

**ПАДСО́ЛЬВАЦЬ** *гл.* падсаліць.

**ПАДСО́ЎВАЦЦА** *гл.* падсунуцца.

**ПАДСО́ЎВАЦЬ** *гл.* падсунуць.

**ПАДСО́ХЛЫ**, -ая, -ае. Які злёгку высах, стаў больш сухім. *Падсохлая глеба.*

**ПАДСО́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; падсо́х, -хла; -ні; *зак.* Злёгку высахнуць. *Дарога падсохла.* ‖ *незак.* **падсыхáць**, -áю, -áеш, -áе. *На дварэ стала п.* (безас.).

**ПАДСО́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* (спец.). Надразанне дрэў для атрымання жывіцы, соку. ‖ *прым.* **падсо́чны**, -ая, -ае.

**ПАДСПРАВАЗДА́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выдаецца з умовай справаздачы. *Падсправаздачныя грошы.* **2.** Які абавязаны рабіць справаздачу. *Падсправаздачная асоба.* ‖ *наз.* **падсправаздáчнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПАДСПУ́ДНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Захаваны, патаемны. *Падспудная трывога.* ‖ *наз.* **падспу́днасць**, -і, *ж.*

**ПАДСТА́ВА**[1], -ы, *мн.* -ы, -тáў, *ж.* Прычына, важкія абставіны, якія робяць зразумелымі што-н., з'яўляюцца асновай для чаго-н. *Мець законныя падставы для чаго-н. На агульных падставах* (нароўне з усімі). ◊ **На падставе** *чаго, у знач. прыназ.* — зыходзячы з чаго-н., апіраючыся на што-н., у адпаведнасці з чым-н. *Дзейнічаць на падставе інструкцыі.*

**ПАДСТА́ВА**[2], -ы, *ж.* (уст.). Зменныя коні ў дарозе, а таксама месца змены коней. *Выслаць падставу.*

**ПАДСТА́ВІЦЬ**, -тáўлю, -тáвіш, -тáвіць; -тáўлены; *зак.* **1.** *каго-што.* Паставіць пад што-н. *П. таз пад кран. П. ножку каму-н.* (паставіць нагу так, каб аб яе спатыкнуўся ці ўпаў хто-н. іншы; таксама перан.: нядобрасумленнымі сродкамі перашкодзіць каму-н. у якой-н. справе; разм.). **2.** *што.* Пасунуўшы, наблізіць. *П. крэсла госцю.* **3.** *перан., каго-што.* Пазбавіць усялякай аховы, зрабіць даступным для нападу. *П. фігуру пад удар.* **4.** *каго-што.* Паставіць узамен. *П. лічбу ў формулу.* ‖ *незак.* **падстаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **падстано́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 4 знач.).

**ПАДСТА́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -тáвак, *ж.* Прадмет, які падстаўляюць пад што-н. *Вазоны на падстаўках.* ‖ *прым.* **падстáвачны**, -ая, -ае.

**ПАДСТАЎНЫ́**, -áя, -о́е. **1.** Такі, які падстаўляюць знізу або збоку. *Падстаўная лесвіца.* **2.** Спецыяльна падабраны для якой-н. мэты, несапраўдны. *Падстаўная асоба.*

**ПАДСТРА́ЎНІКАВЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца пад страўнікам. *П. сок.* ○ **Падстраўнікавая залоза** — залоза, якая выдзяляе стрававальны сок і гармоны і рэгулюе вугляводны і тлушчавы абмен.

**ПАДСТРАХАВА́ЦЬ**, -раху́ю, -раху́еш, -раху́е; -раху́й; -рахавáны; *зак., каго-што* (разм.). Страхуючы (*гл.* страхаваць у 3 знач.), памагчы ў выкананні якой-н. задачы, у правядзенні якога-н. прыёму. ‖ *незак.* **падстрахо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падстрахо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПАДСТРО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., што.* **1.** Тое, што і *настроіць* (у 2 знач.). *П. гітару пад раяль.* **2.** Тайком учыніць што-н. (разм.). *П. штуку.* ‖ *незак.* **падстро́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **падстро́іцца**, -о́юся, -о́ішся, -о́іцца (да 1 знач.); *незак.* **падстро́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДСТРЫ́ГЧЫ**, -ыгу́, -ыжэ́ш, -ыжэ́; -ыжо́м, -ыжаце́, -ыгу́ць; -ы́г, -глá, -ло́; -ыжы́; -ы́жаны; *зак., каго-што.* Астрыгчы крыху. *П. вусы. П. кусты. П. хлопчыка.* ‖ *незак.* **падстрыгáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПАДСТРЫ́ГЧЫСЯ**, -ыгу́ся, -ыжэ́шся, -ыжэ́цца; -ыжо́мся, -ыжаце́ся, -ыгу́цца; -ы́гся, -глáся, -ло́ся; -ыжы́ся; *зак.* Падстрыгчы сабе валасы. *П. ў цырульні.* ‖ *незак.* **падстрыгáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ПАДСТРЭ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Падбіць, раніць стрэлам. *П. воўка.* ‖ *незак.* **падстрэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДСТРЭ́ШАК**, -шка, *мн.* -шкі, -шкаў, *м.* Ніжні край страхі драўлянай хаты, які навісае над сцяной. ‖ *прым.* **падстрэ́шачны**, -ая, -ае *і* **падстрэ́шкавы**, -ая, -ае.

**ПАДСТРЭ́ШША**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Ніжні край страхі драўлянай хаты, які навісае над сцяной, а таксама прастора пад ім. *У падстрэшшы гнёзды ластавак.* ‖ *прым.* **падстрэ́шны**, -ая, -ае.

**ПАДСТУПІ́ЦЦА**, -уплю́ся, -у́пішся, -у́піцца; *зак.* **1.** Тое, што і *падступіць* (у 1 знач.). *Дзеці падступіліся бліжэй да дзядзькі.* **2.** *да каго.* Падысці, звярнуўшыся з просьбай, пытаннем. *Да яго сёння не п.* ‖ *незак.* **падступáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ПАДСТУПІ́ЦЬ**, -уплю́, -у́піш, -у́піць; *зак.* **1.** *да каго-чаго.* Падысці блізка. *П. да дзіцяці. Вёска падступіла да лесу* (перан.). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., да чаго.* Пра пачуцці, стан: з'явіцца, праявіцца ў якой-н. вобласці, у якім-н. месцы. *Падступіла* (безас.) *да сэрца. Ком падступіў да горла.* ‖ *незак.* **падступáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **по́дступ**, -у, *м.*

**ПАДСУ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каму* (разм.). У спорце: прадузята судзіць на карысць якой-н. каманды, спартсмена. *Суддзя падсуджваў камандзе землякоў.* ‖ *зак.* **падсудзі́ць**, -суджу́, -су́дзіш, -су́дзіць.

**ПАДСУ́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які падлягае суду (наогул або ў дадзенай судовай інстанцыі). *Падсудная справа.* **2.** *у знач. наз.* **падсу́дны**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.;* **падсу́дная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Чалавек, які абвінавачваецца ў чым-н. і знаходзіцца пад судом. ‖ *наз.* **падсу́днасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**ПАДСУМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак., што* (кніжн.). Падвесці падрахунак чаму-н. *П. усе даныя.* ‖ *незак.* **падсумо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДСУ́МАК**, -мка, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* Невялікая паясная сумка для патронаў. *Укласці абоймы ў п.*

**ПАДСУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -су́нь; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Пасунуўшы, наблізіць. *П. крэсла да стала.* **2.** *каго-што.* Засунуць пад што-н. *П. таз пад лаву.* **3.** *што.* Непрыметна падлажыць што-н. *П. запіску.* **4.** *каго-што.* Абмануўшы, прымусіць узяць што-н. дрэннае, непатрэбнае (разм.). *П. бракаваны тавар.* ‖ *незак.* **падсо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **падсу́нуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься (да 1 знач.); *незак.* **падсо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДСУСЕ́ДЗІЦЦА**, -е́джуся, -е́дзішся, -е́дзіцца; *зак., да каго-чаго* (разм.). Падсесці, размясціцца побач з кім-н., далучыцца да каго-, чаго-н. *П. да кампаніі.* ‖ *незак.* **падсусе́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДСУШЫ́ЦЬ**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны; *зак., што.* Крыху, злёгку высушыць. *П. бялізну. П. грыбы.* ‖ *незак.* **падсу́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падсу́шванне**, -я, *н.* *і* **падсу́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.*

**ПАДСЦЕРАГЧЫ́**, -рагу́, -ражэ́ш, -ражэ́; -ражо́м, -ражаце́, -рагу́ць; -цяро́г, -цераглá, -ло́; -ражы́; -ражо́ны; *зак., каго-што.* Высочваючы, дачакацца каго-, чаго-н. *Кот падсцярог здабычу.* ‖ *незак.* **падсцерага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДСЦЁБНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., каго (што).* **1.** Падганяючы, злёгку сцебануць. *П. каня.* **2.** *перан.* Прыскорыць, прымусіць рабіць што-н. хутчэй (разм.). *П. адстаючых.* ‖ *незак.* **падсцёбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДСЦІЛА́ННЕ** *гл.* падаслаць[2].

**ПАДСЦІЛА́ЦЬ** *гл.* падаслаць[2].

**ПАДСЦІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** *гл.* падаслаць[2]. *Легчы на саламяную падсцілку.* **2.** Тое, што і *подсціл* (у 2 знач.). ‖ *прым.* **падсці́лачны**, -ая, -ае. *П. матэрыял.*

**ПАДСЫЛА́ННЕ** *гл.* падаслаць[1].

**ПАДСЫЛА́ЦЬ** *гл.* падаслаць[1].

**ПАДСЫ́ЛКА** *гл.* падаслаць[1].

**ПАДСЫ́ПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; -сы́п; -паны; *зак., што* і *чаго.* Падбавіць, насыпаючы. *П. вугалю ў топку.* ‖ *незак.* **падсыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **падсыпа́нне**, -я, *н.* *і* **падсы́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.*

**ПАДСЫХА́ЦЬ** *гл.* падсохнуць.

**ПАДСЫЦІ́ЦЬ**, -ычу́, -ы́ціш, -ы́ціць; -ы́чаны; *зак., што.* Падсаладзіць мёдам. *П. кашу.* ‖ *незак.* **падсы́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДСЯВА́ННЕ** *гл.* падсеяць.

**ПАДСЯВА́ЦЬ** *гл.* падсеяць.

**ПАДСЯДА́ЦЬ** *гл.* падсесці.

**ПАДСЯДЗЁЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* Частка конскай вупражы — скураная падушка на пярэдняй частцы спіны, якая з'яўляецца апорай для паска. ‖ *прым.* **падсядзёлкавы**, -ая, -ае.

**ПАДСЯЧЫ́** *і* **ПАДСЕ́КЧЫ**, -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы́; -се́чаны; *зак.* **1.** *што.* Надсячы знізу. *П. дрэва.* **2.** *што* і *чаго.* Насячы дадаткова, яшчэ трохі. *П. дроў.* **3.** *што.* Тузануць за вуду ў той момант, калі рыба бярэцца на кручок. ‖ *незак.* **падсяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **падсяка́нне**, -я, *н.* *і* **падсе́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.*

**ПАДТА́КВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каму-чаму* (разм.). Слухаючы чужую гаворку, выказваць згоду, адабрэнне, часта вымаўляючы «так». *Ён меў звычку п.* ‖ *аднакр.* **падта́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **падта́кванне**, -я, *н.*

**ПАДТА́ЛЫ**, -ая, -ае. Які злёгку падтаў, растаў. *П. снег.*

**ПАДТАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., што.* **1.** Тасуючы, падабраць, укласці ў якім-н. парадку з мэтай падману. *П. карты.* **2.** *перан.* Наўмысна сказіць, падабраўшы выгаднае і выкінуўшы супярэчлівае. *П. факты.* ‖ *незак.* **падтасо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падтасо́ўванне**, -я, *н.* *і* **падтасо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПАДТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Растаць крыху, знізу ці з краёў. *Снег падтаў.* ‖ *незак.* **падтава́ць**, -тае́.

**ПАДТАЧЫ́ЦЬ**, -тачу́, -то́чыш, -то́чыць; -то́чаны; *зак.* **1.** *што.* Натачыць крыху. *П. сякеру.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Пашкодзіць, раз'ядаючы знутры, знізу (пра чарвей і пад.). *Шашаль падтачыў бярвенне.* **3.** *перан., каго-што.* Аслабіць, прывесці ў заняпад. *Падточанае здароўе. Гэта хвароба падтачыла яго.* ‖ *незак.* **падто́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДТРЫМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -ы́маны; *зак.* **1.** *каго-што.* Прытрымаўшы, не даць упасці. *П. пад руку.* **2.** *перан., каго (што).* Аказаць каму-н. дапамогу, садзейнічанне. *П. сябра ў цяжкую мінуту. П. добрай парадай.* **3.** *перан., каго-што.* Выказаўшы згоду, адобрыўшы, выступіць у абарону каго-, чаго-н. *П. чыю-н. кандыдатуру.* **4.** *што.* Не даць спыніцца, парушыцца чаму-н. *П. агонь у пліце. П. гутарку.* ‖ *незак.* **падтры́мліваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **падтры́млiванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **падтрыма́нне**, -я, *н.* (да 4 знач.) *і* **падтры́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *ж.* (да 1—3 знач.). *Падтрыманне артылерыйскім агнём. Падтрымка прапановы.*

**ПАДТРЫ́МЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* падтрымаць. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Служыць апорай для чаго-н. *Падпоры падтрымлівалі столь.*

**ПАДТУЛІ́ЦЬ**, -улю́, -у́ліш, -у́ліць; -у́лены; *зак., што.* Падагнуўшы, скурчыўшы, падабраць або прыціснуць да сябе. *Сабака падтуліў хвост.* ‖ *незак.* **падту́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДТЫКА́ЦЬ** *гл.* падаткнуць.

**ПАДТЫ́ННІК**, -у, *м.* Тое, што і *чыстацел.*

**ПАДТЭ́КСТ**, -у, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Унутраны, прыхаваны сэнс тэксту, выказвання.

**ПАДТЭКСТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -то́вак, *ж.* (спец.). **1.** Складанне тэксту для песеннай музыкі. **2.** Тэкст, вершы для песеннай музыкі.

**ПА́ДУБ**, -а *і* (*зб.* і пра драўніну) -у, *м.* Тое, што і *вастраліст.*

**ПАДУЗДЫ́ШНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які знаходзіцца паміж ніжнімі рэбрамі і касцямі таза. *Падуздышная вобласць.*

**ПАДУЛА́ДНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца пад чыёй-н. уладай, залежны ад каго-, чаго-н. *П. закону.* ‖ *наз.* **падула́днасць**, -і, *ж.*

**ПАДУ́МАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** *гл.* думаць. **2.** Правесці некаторы час, думаючы пра што-н. *Не спяшайся з вывадам, добра падумай.* **3.** 2 ас. адз. і мн. л. **паду́маеш, паду́майце**. Ужыв. як пабочн. сл. або як рэпліка для выражэння насмешкі, недавер'я і пад. (разм.). *Падумаеш, такі знаток знайшоўся. Падумайце, ён яшчэ і грубіяніць мне!* ◊ **І не падумаю (і не падумаеш, і не падумаў** і пад.; разм.) — 1) у спалучэнні з інф. абазначае адмаўленне, нязгоду, нежаданне. *Падбухторваў мяне на дрэннае, а я і не падумаў ісці на такое. І не падумаю прасіць прабачэння;* 2) без інф. выражае катэгарычны адказ. — *Адпусціш мяне ў горад? — І не падумаю.* **Падумаць! і падумаць толькі!** (разм.) — выражэнне здзіўлення. *Падумаць толькі: што мы выцерпелі!*

**ПАДУ́МВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Час ад часу думаць, раздумваць пра будучае. *П. аб жаніцьбе.* **2.** Мець намер зрабіць што-н. *Даўно падумваю паехаць павучыцца.*

**ПАДУПА́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які пачаў занепадаць. *Падупалая гаспадарка.* **2.** Слабы, хваравіты. *П. здароўем чалавек.*

**ПАДУПА́СЦІ**, -паду́, -падзе́ш, -падзе́; -падзём, -падзяце́, -паду́ць; -па́ў, -па́ла; -падзі́; *зак.* (разм.). **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыйсці да заняпаду. *Гаспадарка падупала.* **2.** Стаць слабым, хваравітым. *Стары зусім падупаў.* ‖ *незак.* **падупада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАДУРНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -е́е; -е́ем, -е́еце, -е́юць; *зак.* (разм.). Здурнець — пра ўсіх, многіх. *Няўжо яны падурнелі ўсе?*

**ПАДУРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* (разм.). **1.** Дурэць некаторы час. *Няхай дзеці трохі падурэюць.* **2.** (*1 і 2 ас. адз. не ўжыв.*). Прыйсці ў стан адурэння — пра ўсіх, многіх. *Ад ацэтону ледзь не падурэлі.*

**ПАДУ́ЧЫ**, -ая, -ае. У выразе: **падучая хвароба** (разм.) — эпілепсія.

**ПАДУ́ШАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** *гл.* падушка. **2.** *мн.* Гатунак цукерак, якія па форме нагадваюць падушку.

**ПАДУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Зашыты з усіх бакоў чахол, набіты пер'ем, пухам, паралонам ці іншым мяккім матэрыялам, які падкладваюць пад галаву. *Пуховая п.* **2.** Тое, што з'яўляецца апорай чаго-н., прымае на сябе ціск, трэнне і пад. (спец.). *П. механізма.* ○ **Кіс-**

**лародная падушка** — медыцынскі прыбор у выглядзе падушкі, якая змяшчае кісларод. ‖ *памянш.* **падýшачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). *Падушачкі пальцаў* (перан.). ‖ *прым.* **падýшачны**, -ая, -ае.

**ПАДУ́ШНЫ**, -ая, -ае; *гіст.* Асноўны падатак, які ў 18—19 стст. браўся з кожнага чалавека, з душы. *П. падатак.*

**ПАДУШЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ўшыцца; -ўшымся, -ўшыцеся, -ўшацца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць падушаным, памятым. *Ягады ў кошыку падушыліся.* **2.** Задыхнуцца — пра ўсіх, многіх (разм.). *Мы там ледзь не падушыліся ад дыму.*

**ПАДУШЫ́ЦЬ**[1], -ушý, -ýшыш, -ýшыць; -ýшаны; *зак.* **1.** *каго.* Задушыць усіх, многіх. *П. усіх мух.* **2.** *што.* Раздушыць, памяць. *П. многа ягад.* **3.** *каго-што.* Душыць некаторы час.

**ПАДУШЫ́ЦЬ**[2], -ушý, -ýшыш, -ýшыць; -ýшаны; *зак., каго-што.* Апырскаць трохý духамі. *П. насоўку.* ‖ *звар.* **падушы́цца**, -ушýся, -ýшышся, -ýшыцца.

**ПАДФАРБАВА́ЦЬ**, -бýю, -бýеш, -бýе; -бýй; -бавáны; *зак., каго-што.* Злёгку пафарбаваць. *П. губы.* ‖ *незак.* **падфарбóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **падфарбавáцца**, -бýюся, -бýешся, -бýецца; -бýйся; *незак.* **падфарбóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **падфарбóўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **падфарбóўванне**, -я, *н.*

**ПАДФА́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Невялікі дапаможны ліхтар каля пярэдняга крыла на аўтамашыне.

**ПАДФАСТРЫГАВА́ЦЬ**, -гýю, -гýеш, -гýе; -гýй; -гавáны; *зак., што.* Падшыць рэдкімі шыўкамі. *П. прыпол сукенкі.* ‖ *незак.* **падфастрыгóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДХАЛІ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Нізкі, подлы ліслівец, які запабягае перад кім-н., каб дамагчыся свайго. ‖ *ж.* **падхалíмка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак. ‖ *прым.* **падхалíмскі**, -ая, -ае.

**ПАДХАЛІМА́Ж**, -у, *м.* (разм.). Тое, што і падхалімства.

**ПАДХАЛІ́МНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Паводзіць сябе як падхалім. ‖ *наз.* **падхалíмства**, -а, *н. і* **падхалíмнічанне**, -я, *н.*

**ПАДХАПІ́ЦЬ**, -хаплю́, -хóпіш, -хóпіць; -хóплены; *зак.* **1.** *каго-што.* Падтрымаць, падняць, трымаючы знізу, схапіць (злавіць тое, што падае). *П. сумку. П. саслабелую старую. Імклівая вада падхапіла човен.* **2.** *каго-што.* Рэзкім, паспешлівым рухам узяць, прыхапіць мімаходам. *Хлопец падхапіў дзяўчыну і закружыўся ў танцы.* **3.** *перан., што.* Адразу або нечакана атрымаць, схапіць, захварэць (разм.). *П. запаленне лёгкіх.* **4.** *перан., што.* Скарыстаўшы што-н. зробленае, пушчанае ў ход іншым, прадоўжыць пачатае другім (разм.). *П. чужую думку.* **5.** *што.* Пачаць падпяваць. *Весела п. песню.* **6.** *перан., што.* Падтрымаць, расшыраючы і паглыбляючы якое-н. дасягненне. *П. пачын.* ‖ *незак.* **падхóпліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДХАРУ́НЖЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* У казацкіх войсках царскай арміі: званне, роўнае падпрапаршчыку, а таксама асоба, якая мела гэта званне.

**ПАДХАРЧАВА́ЦЬ**, -чýю, -чýеш, -чýе; -чýй; -чавáны, *зак., каго (што)* (разм.). Падкарміць, падсілкаваць. *П. коней.* ‖ *незак.* **падхарчóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **падхарчавáцца**, -чýюся, -чýешся, -чýецца; -чýйся; *незак.* **падхарчóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДХВАЛІ́ЦЬ**, -валю́, -вáліш, -вáліць; -вáлены; *зак., каго-што* (разм.). Трохі пахваліць. *П. вучня за адказ.* ‖ *незак.* **падхвáльваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДХО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* падхапіць.

**ПАДЦЕ́РЦІ**, -датрý, -датрэ́ш, -датрэ́; -датрóм, -датрацé, -датрýць; падцёр, -цёрла; -датры́; -цёрты; *зак.* **1.** *каго-што.* Выцерці насуха. *П. лужыну пад рукамыйнікам. П. падлогу.* **2.** *што.* Сцерці, падчысціць (у 2 знач.). *П. напісанае.* **3.** *каго-што.* Выцерці знізу. *П. дзіця.* ‖ *незак.* **падцірáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *звар.* **падцéрціся**, -датрýся, -датрэ́шся, -датрэ́цца; -датрóмся, -датрацéся, -датрýцца; -цёрся, -цéрлася; -датры́ся (да 3 знач.); *незак.* **падцірáнне**, -я, *н. і* **падцíрка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (разм.). ‖ *прым.* **падцíрачны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ПАДЦЁК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** След ад сцякання якой-н. вадкасці, фарбы. *Падцёкі на сценах.* **2.** Сіняватая прыпухласць на целе ад падскурнага кровазліцця пасля ўдару.

**ПАДЦЁКЛЫ**, -ая, -ае. З падцёкамі (у 2 знач.). *П. твар.*

**ПАДЦЁЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* Гадавалае цяля.

**ПАДЦІКАВА́ЦЬ**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; -кавáны; *зак., каго (што).* Тое, што і *падпільнаваць.* ‖ *незак.* **падцікóўваць**, -аю, -аеш, ае.

**ПАДЦІНА́ЦЬ** *гл.* падцяць.

**ПАДЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *што.* Мацней увязаць або закруціць. *П. воз з сенам. П. гайкі.* **2.** *што.* Сагнуўшы, сціснуўшы, падцягнуць пад сябе. *П. пад сябе ногі. П. губы.* **3.** *перан.* Крыху павялічыцца (пра мароз, холад; разм.). *Была адліга, а потым падціснуў мароз.* ‖ *незак.* **падціскáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПАДЦЫРАВА́ЦЬ**, -рýю, -рýеш, -рýе; -рýй; -равáны; *зак., што* (разм.). Зацыраваць збольшага, у асобных месцах. *П. пальчаткі.* ‖ *незак.* **падцырóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДЦЯ́ГНУТЫ**, -ая, -ае. Знешне акуратны, унутрана дысцыплінаваны. *П. чалавек. П. выгляд.* ‖ *наз.* **падця́гнутасць**, -і, *ж.*

**ПАДЦЯГНУ́ЦЦА**, -ягнýся, -я́гнешся, -я́гнецца; -ягні́ся; *зак.* **1.** Упіраючыся, трымаючыся, падняцца. *П. на турніку.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сканцэнтроўваючыся, наблізіцца, падысці куды-н. *Войскі падцягнуліся да лініі фронту.* **3.** *перан.* Стаць больш дысцыплінаваным, больш працаздольным (разм.). *Адстаючыя вучні значна падцягнуліся.* ‖ *незак.* **падця́гвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАДЦЯГНУ́ЦЬ**, -ягнý, -я́гнеш, -я́гне; -ягні́; -я́гнуты; *зак.* **1.** *што.* Нацягнуць або напяць тужэй. *П. пасак.* **2.** *каго-што.* Падцягваючы, наблізіць. *П. бервяно да саней.* **3.** *каго-што.* Сканцэнтроўваючы, наблізіць, падвесці куды-н. *П. рэзервы к фронту.* **4.** *перан., каго (што).* Зрабіць больш дысцыплінаваным, больш працаздольным (разм.). *П. адстаючых па матэматыцы.* **5.** *каму* і *без дап.* Далучыцца да таго, хто спявае, падпяваючы яму. ‖ *незак.* **падця́гваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **падця́гванне**, -я, *н. і* **падця́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* (да 1 знач.; разм.).

**ПАДЦЯ́ЖКІ**, -жак. Прадмет адзення ў выглядзе дзвюх эластычных, звычайна прагумаваных, перакрыжаваных на спіне тасьмаў, якія падтрымліваюць штаны; шлейкі. ‖ *прым.* **падця́жачны**, -ая, -ае.

**ПАДЦЯ́ЦЬ**, -датнý, -датнéш, -датнé; -датнём, -датняцé, -датнýць; -дця́ў, -цялá; -датні́; -ця́ты; *зак., што* (разм.). **1.** Тое, што і *падцісн*уць (у 2 знач.). *П. губы. П. хвост.* **2.** Падсячы, падрэзаць. *П. сякерай ствол.* ‖ *незак.* **падцінáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПАДЦЯЧЫ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цячэ́, -цякýць; -цёк, -цяклá, -лó; *зак.* Нацячы пад што-н. *Вада падцякла пад дзверы.* ‖ *незак.* **падцякáць**, -áе.

**ПАДЧА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *зак.* Прычальваючы, наблізіцца. *П. да прыстані.* ‖ *незак.* **падчáльваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю́, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак.* **1.** *каго-што.* Узяць, зачапіўшы знізу. *П. бервяно бусаком.* **2.** *што.* Тое, што і *прычапіць* (у 1 знач.; разм.). *П. вагон да поезда.* **3.** *перан., каго-што* і *чаго.* Тое, што і *падхапіць* (у 3 знач.; разм., жарт.). *П. жаніха. П. насмарк.* ‖ *незак.* **падчэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **падчапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **падчэ́пліванне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.) *і* **падчэ́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (да 2 знач.; разм.).

**ПА́ДЧАРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (разм.). Тое, што і *падчарыца.*

**ПА́ДЧАРЫЦА**, -ы, *мн.* -ы, -рыц, *ж.* Няродная дачка мужа ці жонкі.

**ПАДЧА́С**, *прысл.* і *прыназ.* Часам, у асобныя прамежкі часу. *Яму п. бывае сумна.* **2.** *прыназ. з Р.* Выражае часавыя адносіны: ужыв. пры ўказанні на з'яву, падзею, тэрмін, у час якіх адбываецца ці існуе што-н. *П. аварыі загінулі пасажыры.*

**ПАДЧЫСТУ́Ю**, *прысл.* (разм.). Поўнасцю, без астатку. *З'елі ўсё п.*

**ПАДЧЫ́СЦІЦЬ**, -ы́шчу, -ы́сціш, -ы́сціць; -ы́шчаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць больш чыстым; вычысціць. *П. у садзе.* **2.** Сцерці, саскрэбці (напісанае). *П. памарку.* **3.** Зрасходаваць або з'есці ўсё, без астатку (разм.). *П. усе прыпасы.* ‖ *незак.* **падчышчáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **падчы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**ПАДЧЭ́ПКА** *гл.* падчапіць.

**ПАДЧЭ́ПЛІВАННЕ** *гл.* падчапіць.

**ПАДЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *гл.* падчапіць.

**ПАДШКІ́ПЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Памочнік шкіпера. ‖ *прым.* **падшкі́перскі**, -ая, -ае.

**ПАДШКЛЯ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Падстаўка з ручкай для шклянкі. *Сярэбраны п.*

**ПАДШЛЕ́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Шапка, якая закрывае вушы і падбародак і надзяваецца пад каску, шлем.

**ПАДШМАРГНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што* (разм.). Шмаргануўшы, падцягнуць. *П. лейцы.* ‖ *незак.* **падшмо́ргваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДШПІЛІ́ЦЬ**, -пілю́, -пі́ліш, -пі́ліць; -пі́лены; *зак., што.* Прышпіліць знізу. *П. стужкай валасы. П. даведку да заявы.* ‖ *незак.* **падшпі́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДШРУБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* Зашрубаваць глыбей, тужэй. *П. гайку.* ‖ *незак.* **падшрубо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДШТУРХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* **1.** Злёгку штурхнуць. *П. воз плячом.* **2.** Штурхнуўшы, падсунуць, наблізіць да чаго-н. *П. суседа да дзвярэй.* **3.** *перан.* Схіліць да чаго-н., прыспешыць з чым-н., паскорыць што-н. (разм.). ‖ *незак.* **падшту́рхваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **падштурхо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДШУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Падбіраючы, знайсці што-н. неабходнае, прыдатнае. *П. слова. П. кватэру.* ‖ *незак.* **падшу́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДШЫВА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (разм.). Гарэзлівы падлетак. *Сабраўся гурт падшыванцаў.*

**ПАДШЫ́ПНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Апорная дэталь для механізмаў і частак машын, якія круцяцца або качаюцца. *Ролікавы п.* ‖ *прым.* **падшы́пнікавы**, -ая, -ае.

**ПАДШЫ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -шы́вак, *ж.* **1.** *гл.* падшыць. **2.** Стос падшытых газет, дакументаў і пад.

**ПАДШЫ́ЦЦА**, -ы́юся, -ы́ешся, -ы́ецца; *зак.* (разм.). Залезці пад што-н. *Хлапчук падшыўся пад ложак.*

**ПАДШЫ́ЦЬ**, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак., што.* **1.** Прышыць што-н. ці да чаго-н. спадыспаду, знізу. *П. падкладку.* **2.** Зашыць, падагнуўшы вузкай паласой край чаго-н. *П. прыпол сукенкі.* **3.** Прышыўшы, далучыць, прымацаваць. *П. даведку ў асабістую справу.* ‖ *незак.* **падшыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **падшыва́нне**, -я, *н. і* **падшы́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **падшыўны́**, -а́я, -о́е *і* **падшы́вачны**, -ая, -ае. *Падшыўны каўнерык. Падшывачны матэрыял.*

**ПАДШЭ́ФНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца пад чыім-н. шэфствам. *П. калгас. Дапамагаць сваім падшэфным* (наз.).

**ПАДЫГРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каму* (разм.). **1.** Нягучна сыграць, акампаніруючы каму-н. *П. на фартэпіяна спеваку.* **2.** *перан.* Падладзіцца пад чые-н. інтарэсы, настрой і пад. **3.** Сваёй ігрой (на сцэне, у спорце) дапамагчы ігры партнёра. ‖ *незак.* **падыгрываць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАДЫМА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *пад'ёмны.*

**ПАДЫМА́ЦЦА** *гл.* падняцца.

**ПАДЫМА́ЦЬ** *гл.* падняць.

**ПАДЫ́СПАД**, *прысл.* **1.** У самы ніз. *Пакласці п.* **2.** Пад што-н. *Надзець п.*

**ПАДЫ́СПАДАМ**, *прысл.* Унізе, пад чым-н. *Сена п. мокрае.*

**ПАДЫСЦІ́**, падыду́, пады́дзеш, пады́дзе; падышо́ў, -шла́, -ло́; падыдзі́; *зак.* **1.** Ідучы, наблізіцца. *П. да дзвярэй. Дарога падышла да садоў* (перан.). **2.** Узяцца за чарговую справу. *П. да вывучэння дробаў.* **3.** *перан.* Паставіцца пэўным чынам да каго-, чаго-н., узяцца за што-н., маючы пэўны пункт гледжання. *Ён умее п. да чалавека. Крытычна п. да меркаванняў аўтара.* **4.** Аказацца прыдатным, зручным, прымальным для каго-, чаго-н., адпавядаць каму-, чаму-н. *Гэты касцюм мне не падышоў. Ён не падыдзе на такую работу.* ‖ *незак.* **падыхо́дзіць**, -о́джу, -о́дзіш, -о́дзіць. ‖ *наз.* **падыхо́д**, -у, *М* -дзе (да 1—3 знач.).

**ПАДЫ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Правесці некаторы час, дыхаючы чым-н. *П. свежым паветрам.*

**ПАДЫХО́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* падысці. **2.** Месца, па якім падыходзяць да чаго-н. *Зручны п. да ракі.* **3.** (*перан.*). Сукупнасць спосабаў, прыёмаў разгляду чаго-н., адносін да каго-, чаго-н. *Правільны п. да вырашэння нацыянальнага пытання. Ён умее знайсці п. да кожнага чалавека.*

**ПАДЫХО́ДЗІЦЬ** *гл.* падысці.

**ПАДЭ́ШВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Ступня (у 2 знач.). *Намуляць падэшву.* **2.** Ніжняя частка абутку пад ступнёй. *Скураная п.* **3.** *перан., чаго.* Ніжняя частка, аснова чаго-н. *П. гары.* ‖ *прым.* **падэ́швенны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПАД'ЯДА́ЦЬ** *гл.* пад'есці.

**ПАД'ЯЗДЖА́ЦЬ** *гл.* пад'ехаць.

**ПАД'ЯЗНЫ́** *гл.* пад'езд.

**ПАД'ЯЗЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца пад языком. *П. нерв.*

**ПАД'ЯРЭ́МНЫ**, -ая, -ае. Паднявольны, прымусовы. *Пад'ярэмная праца.*

**ПАЕ́ЗДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *зак.* Зрабіць многа паездак. *П. па свеце.*

**ПАЕ́ЗДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Кароткае падарожжа; выезд куды-н. на некаторы час. *П. за мяжу.*

**ПАЕ́ННЕ** *гл.* паіць.

**ПАЕ́СЦІ**, пае́м, паясі́, пае́сць; паядзі́м, паясце́, паяду́ць; пае́ў, -е́ла; пае́ш; пае́дзены; *зак.* **1.** *гл.* есці. **2.** *чаго* і *без дап.* З'есці трохі. *П. перад дарогай.* **3.** *каго-што.* З'есці без астатку. *Вусень паеў усё лісце.* **4.** *што.* Сапсаваць, грызучы, кусаючы. *Шашаль паеў дрэва.* ‖ *незак.* **пая́даць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 3 і 4 знач.).

**ПАЕ́ХАЦЬ**, -е́ду, -е́дзеш, -е́дзе; -е́дзем, -е́дзеце, -е́дуць; -е́дзь; *зак.* **1.** Накіравацца ў дарогу на чым-н. *П. па дровы. П. у госці.* **2.** *перан.* Зрушыўшыся, саслізнуць, пасунуцца (разм.). *Нага не ўтрымалася і паехала.* **3.** Пачаць рабіць што-н., гаварыць што-н. (разм., неадабр.). *Ад яго чакалі тоста, а ён паехаў зусім не туды.*

**ПАЁК**, пайка́, *мн.* пайкі́, пайко́ў, *м.* Ежа або прадукты, якія выдаюцца ў пэўнай колькасці і на пэўны час. *Хлебны п. Сухі п.* (які выдаецца замест штодзённага харчавання). ‖ *прым.* **пайко́вы**, -ая, -ае.

**ПАЖАВА́ЦЬ**, -жую́, -жуе́ш, -жуе́; -жуём, -жуяце́, -жую́ць; -жу́й; -жава́ны; *зак., што.* Патрымаць у роце, разжоўваючы. *Пажуй і выплюнь. П. сківіцамі* (зрабіць жавальныя рухі сківіцамі).

**ПАЖАДА́НА**, *безас., у знач. вык., з інф.* і *злуч.* «каб» (кніжн.). Мэтазгодна, неабходна. *П. асобныя часткі паэмы вывучыць на памяць. П., каб усё там абышлося добра.*

**ПАЖАДА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які патрэбны, які адпавядае патрабаванням. *Пажаданыя вынікі. П. кірунак падзей.* **2.** Такі, якога чакаюць, жаданы. *Пажаданыя наведвальнікі. Пажаданая вестка.*

**ПАЖАДА́ЦЬ** *гл.* жадаць.

**ПАЖА́ЛІЦЦА** *гл.* жаліцца.

**ПАЖАНІ́ЦЦА**, -жанюся, -жэ́нішся, -жэ́ніцца; -жэ́німся, -жэ́ніцеся, -жэ́няцца; *зак., з кім* і *без дап.* **1.** *гл.* жаніцца. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ажаніцца — пра ўсіх, многіх. *Моладзь пажэніцца. Сыны ўжо пажаніліся.*

**ПАЖАНІ́ЦЬ**, -жаню́, -жэ́ніш, -жэ́ніць; *зак., каго (што)* і *каго з кім.* **1.** Паяднаць шлюбам, уладзіць чый-н. шлюб. *Думаем п. гэту пару.* **2.** Ажаніць усіх, многіх. *П. сыноў.*

**ПАЖА́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Агонь, які ахоплівае і знішчае ўсё, што можа гарэць. *Лясны п. Не на п.* (выраз, які ўжыв. ў знач.: няма куды спяшацца; разм.). **2.** *перан., каго.* Ужыв. ў некаторых выразах для абазначэння падзей, якія бурна развіваюцца, праяўляюцца (высок.). *П. вайны. П. рэвалюцыі.* ◊ **Як на пажар** — вельмі хутка (бегчы, імчацца); спяшацца. ‖ *прым.* **пажа́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Пажарная машына.*

**ПАЖА́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *пажарны* (у 2 знач.).

**ПАЖА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пажар. **2.** *у знач. наз.* **пажа́рны**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Работнік пажарнай каманды. *Пажарныя былі ў касках.* ◊ **На ўсякі пажарны выпадак** (разм., жарт.) — на ўсякі выпадак. **У пажарным парадку** (разм.) — з паспешнасцю, даволі хутка.

**ПАЖАРТАВА́ЦЬ** *гл.* жартаваць.

**ПАЖА́РЫШЧА**, -а, *мн.* -ы, -рышч *і* -аў, *н.* Месца, дзе быў пажар. *Лясное п.*

**ПАЖАЎЦЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які зрабіўся жоўтым. *П. бярэзнік.*

**ПАЖАЎЦЕ́ЦЬ** *гл.* жаўцець.

**ПАЖА́ЦЬ**, -жну́, -жне́ш, -жне́; -жнём, -жняце́, -жну́ць; -жні́; -жа́ты; *зак., што.*

1. Зжаць (*гл.* жаць). *П. ячмень. Што пасееш, тое і пажнеш* (прыказка). 2. *перан.* Здабыць, атрымаць, заслужыць што-н. (высок.). *П. славу. Хто пасее агонь, пажне пажар* (прыказка). ‖ *незак.* **пажына́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2 знач.).

**ПАЖО́ЎКЛЫ**, -ая, -ае. Які зрабіўся жоўтым, набыў жоўтае адценне. *Пажоўклая папера. Пажоўклая трава.*

**ПАЖО́ЎКНУЦЬ** *гл.* жоўкнуць.

**ПАЖРА́ЦЬ**, -ру́, -рэ́ш, -рэ́; -ро́м, -раце́, -ру́ць; -ры́; -ра́ны; *зак.* (разм.). 1. *чаго* і *без дап.* З'есці многае ў якой-н. колькасці, прыняць ежу. 2. *каго-што.* Прагна з'есці ўсё (звычайна пра жывёл). *Саранча пажрала пасевы.* ‖ *незак.* **пажыра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2 знач.). *П. вачамі каго-, што-н.* (перан.: прагна, не адрываючыся глядзець на каго-, што-н.).

**ПАЖУ́ХЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў жухлым. *Пажухлая трава.*

**ПАЖУ́ХНУЦЬ** *гл.* жухнуць.

**ПАЖЫ́ВА**, -ы, *ж.* Тое, чым жывіцца арганізм; спажыва. *П. для раслін, рыб. Духоўная п.* (перан.).

**ПАЖЫВІ́ЦЦА**, -ыўлю́ся, -ы́вішся, -ы́віцца; *зак.* (разм.). 1. Знайсці для сябе якую-н. ежу, пажыву. *Няма дзе курам п.* 2. *чым.* Узяць для сябе што-н. чужое, атрымаць якую-н. карысць з чужога. *П. чужым дабром.*

**ПАЖЫЛЫ́**, -а́я, -о́е. Які пачынае старэць, немалады. *П. мужчына. П. ўзрост.*

**ПАЖЫНА́ЦЬ** *гл.* пажаць.

**ПАЖЫРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што.* 1. *гл.* пажраць *і* пажэрці. 2. Знішчаць цалкам што-н. *Полымя пажырае хаты.*

**ПАЖЫ́ТАК**, -тку, *м.* 1. *гл.* пажыткі. 2. Здабыча, пажыва. *Мышы — самы лепшы п. для кошкі. П. для роздуму* (перан.).

**ПАЖЫ́ТКІ**, -аў, *адз.* пажы́так, -тку, *м.*, таксама *зб.* Дробны скарб, хатнія рэчы.

**ПАЖЫЦЦЁВЫ**, -ая, -ае. Да канца жыцця. *Пажыццёвая пенсія.* ‖ *наз.* **пажыццёвасць**, -і, *ж.*

**ПАЖЫ́ЦЬ**, -ыву́, -ыве́ш, -ыве́; -ывём, -ывяце́, -ыву́ць; пажы́ў, -ыла́, -ло́; *зак.* Пражыць нейкі час. *Пажывём — пабачым* (прымаўка). *П. у горадзе.*

**ПАЖЭ́РЦІ**, -жару́, -жарэ́ш, -жарэ́; -жаро́м, -жараце́, -жару́ць; пажо́р, -жэ́рла; -жары́; -жо́рты; *зак.* Тое, што і *пажраць.* ‖ *незак.* **пажыра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАЗ**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* 1. Вузкая шчыліна або выемка, у якую ўстаўляюць выступ другога прадмета пры замацаванні. 2. Вузкая доўгая шчыліна паміж бярвёнамі, брусамі, якая звычайна запаўняецца мохам. ‖ *прым.* **па́завы**, -ая, -ае.

**ПА-ЗА**, *прыназ. з Т.* Ужыв. для абазначэння месцазнаходжання, руху, дзеяння за чым-н., па той бок чаго-н. *П. гарамі. П. часам і прасторай.*

**ПАЗАБАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., каго.* Павесяліць, пацешыць. *П. дзяцей.* ‖ *звар.* **пазабаўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПАЗАБІВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* 1. Забіцца, разбіцца насмерць — пра ўсіх, многіх. 2. Схавацца куды-н. — пра ўсіх, многіх. *Дзеці пазабіваліся на печ.* 3. (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Засмеціцца, закупорыцца — пра ўсё, многае. *Трубы пазабіваліся пяском.*

**ПАЗАБІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* 1. *каго (што).* Забіць, знішчыць усіх, многіх. *П. ваўкоў.* 2. *што.* Забіць, увагнаць куды-н. усё, многае. *П. цвікі.* 3. *што.* Прыбіўшы ці прымацаваўшы што-н., закрыць наглуха ўсё, многае. *П. вокны.* 4. *што.* Захламіць, засыпаць усё, многае. *Пазабівала* (безас.) *дарогі снегам.*

**ПАЗАБІНТО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Забінтаваць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. раненых. П. ногі.*

**ПАЗАБІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* 1. Забраць з сабой, да сябе ўсё, многае або ўсіх, многіх. *П. рэчы. П. дзяцей з дзіцячага сада.* 2. Забраць сілай усё, многае або арыштаваць ці прызваць усіх, многіх. *Рабаўнікі пазабіралі дабро. Хлопцаў пазабіралі ў армію.*

**ПАЗАБРУ́ДЖВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Забрудзіцца, запэцкацца — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Дзеці пазабруджваліся. Адзенне пазабруджвалася.*

**ПАЗАБРУ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Забрудзіць, запэцкаць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. кнігі. П. рукі дзёгцем.*

**ПАЗАБУДО́ЎВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Забудавацца — пра ўсіх, многіх ці ўсё, многае. *Людзі пазабудоўваліся. Вёскі пазабудоўваліся.*

**ПАЗАБУДО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Забудаваць усё, многае. *П. кварталы.*

**ПАЗАБЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Забыць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. гістарычныя даты. П. знаёмыя мясціны.*

**ПАЗАВАЙСКО́ВЫ**, -ая, -ае. Без знаходжання ў войсках. *Пазавайсковая падрыхтоўка.*

**ПАЗАВАЛАКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАЗАВАЛА́КВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* 1. Завалачы, закрыць, заслаць усё, многае. *Хмары пазавалакалі неба.* 2. Валочачы, зацягнуць куды-н. усё, многае або ўсіх, многіх (разм.). *П. бярвенне ў павець.*

**ПАЗАВА́ЛЬВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* 1. (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Заваліцца, запасці, абваліцца — пра ўсё, многае. *Кнігі пазавальваліся за шафу. Пазавальваліся слупы.* 2. Улегчыся, залегчы — пра ўсіх, многіх (разм.). *Усе пазавальваліся спаць.*

**ПАЗАВА́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* 1. *каго-што.* Заваліць чым-н. усё, многае або ўсіх, многіх. *П. ямы кампостам. П. праходы мэбляй.* 2. *перан., што.* Правалiць усё, многае (разм.). *П. экзамены па асноўных прадметах.*

**ПАЗАВЕ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* 1. Завесіць усё, многае. *П. вокны.* 2. Завешаць што-н. або ўсё, многае вялікай колькасцю чаго-н. (разм.). *П. сцены карцінамі.*

**ПАЗАВО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* 1. *каго (што).* Завесці куды-н. усіх, многіх. *П. дзяцей у школу.* 2. *каго-што.* Абзавесціся кім-, чым-н., увесці што-н. — пра ўсіх, многіх. *Многія гаспадары пазаводзілі пчол.* 3. *што.* Прывесці ў рух якія-н. механізмы. *Пазаводзілі маторы.*

**ПАЗАВО́ЗІЦЬ**, -во́жу, -во́зіш, -во́зіць; -во́жаны; *зак., каго-што.* Завесці ўсіх, многіх або ўсё, многае. *П. дзяцей у лагер. П. тавар у магазіны.*

**ПАЗАВУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Завучыць усё, многае. *П. формулы.*

**ПА́ЗАВЫ** *гл.* паз.

**ПАЗАВЯ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Завязаць усё, многае. *П. мяхі з бульбай.*

**ПАЗАГАНЯ́ЦЬ**[1], -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Загнаць куды-н. усіх, многіх ці ўсё, многае. *П. жывёлу ў хлявы. П. цвікі ў сцяну.*

**ПАЗАГАНЯ́ЦЬ**[2], -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго (што)* (разм.). Заганяць, замарыць усіх, многіх. *Пазаганялі коней за дзень.*

**ПАЗАГАРО́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Загарадзіць усё, многае. *П. сады тынам.*

**ПАЗАГІНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Загнуць усё, многае. *П. цвікі.*

**ПАЗАГО́РТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* 1. *што.* Горнучы, зграбці ў адно месца ўсё, многае. *П. вуголле ў пячурку.* 2. *каго-што.* Ахінуць, абкруціць з усіх бакоў усё, многае ці пакрыць чым-н. сыпкім усё, многае. *П. пакункі. П. бульбу прыскам.* 3. *што.* Закрыць усё, многае. *П. кнігі.*

**ПАЗАГРЫЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго (што).* Загрызці ўсіх, многіх. *Пазагрызалі ваўкі авечак.*

**ПАЗА́ДДЗЕ**, -я, *н., зб.* 1. Адходы пры малацьбе, веянні. 2. *перан.* Чые-н. прыхільнікі, ахвосце (пагард.).

**ПАЗАДЗІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* 1. *што.* Падняць угору ўсё, многае або загнуць, задраць уверх усё, многае. *П. галовы. П. пазногці.* 2. *каго (што).* Забіць, разарваць усіх, многіх. *Каршуны пазадзіралі куранят.*

**ПАЗАДУ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго (што).* Задушыць усіх, многіх.

**ПАЗАЖЫВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Зажыць, загаіцца — пра ўсё, многае. *Раны пазажывалі.*

**ПАЗАЙЗДРО́СЦІЦЬ** *гл.* зайздросціць.

**ПАЗАЙМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* 1. *што.* Запоўніць сабою ўсё, многае або ўзяць у сваё карыстанне ўсё, многае. *Кнігі пазаймалі ўсе паліцы.* 2. *што.* Заха-

піць якую-н. прастору, нейкую колькасць чаго-н. *Турысты пазаймалі ўсе летнія домікі.* **3.** *каго.* Ахапіўшы, пагнаць куды-н. усіх, многіх. *П. кароў у статак.* **4.** *каго (што).* Заняць каго-н. чым-н. некаторы час.

**ПАЗАКА́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Даць заказ на ўсё, многае. *П. дзецям касцюмы.*

**ПАЗАКАНАПА́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Заканапаціць усё, многае. *П. усе шчыліны.*

**ПАЗАКА́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Закасаць усё, многае. *П. рукавы.*

**ПАЗАКАСО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Закасаваць усё, многае. *П. недарэчы напісанае.*

**ПАЗАКІДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАЗАКІ́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што.* Ускінуць на што-н. або закінуць куды-н. усё, многае. *П. стары абутак на гарышча.* **2.** *што.* Кінуўшы, палажыўшы не на сваё месца, згубіць усё, многае (разм.). *П. інструменты.* **3.** *што.* Адкінуць, адвесці (частку цела, аддзенне і пад.) убок, уверх, уніз. *П. рукі назад.* **4.** *што.* Кідаючы, запоўніць ці прыкрыць усё, многае. *П. ямы зямлёй.*

**ПАЗАКЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАЗАКЛА́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Закласці, змясціць куды-н. усё, многае. *П. бялізну ў пральную машыну.* **2.** Адзначыць закладкамі патрэбныя старонкі ў кнізе. **3.** Закласці чым-н. усю паверхню прадмета. *П. сталы кнігамі.* **4.** Закрыць, загарадзіць чым-н. усё, многае. *П. аконныя праёмы цэглай.* **5.** Зрабіць аснову, пачаць будаўніцтва чаго-н. *П. фундаменты дамоў.*

**ПАЗАКЛА́САВЫ**, -ая, -ае. Які стаіць па-за грамадскімі класамі.

**ПАЗАКЛА́СНЫ**, -ая, -ае. Які праводзіцца не ў класе, не ў час класных заняткаў. *Пазакласнае чытанне.*

**ПАЗАКЛЕ́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Заклеіць усё, многае. *П. шчыліны.* **2.** Наляпіўшы чаго-н. мноства, укрыць усё, многае. *П. сцены малюнкамі.*

**ПАЗАКО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што.* Паклаўшы ў якое-н. паглыбленне, засыпаць зверху — пра ўсё, многае або ўсіх, многіх. *П. у пясок.* **2.** *што.* Засыпаць, зараўнаваць усё, многае. *П. ямы.*

**ПАЗАКО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Закаціць куды-н. усё, многае. *П. матацыклы ў гараж.*

**ПАЗАКРУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Закруціць, завіць (валасы); замацаваць, завязаць усё, многае. *П. вусы. П. дротам дачныя брамкі.* **2.** *што.* Абвязаць, абматаць чым-н. усё, многае. *П. бінтам пальцы.* **3.** *каго-што.* Загарнуць у што-н. усіх, многіх або ўсё, многае. *П. дзяцей у коўдры.* **4.** *што.* Круцячы, закрыць, завінціць усё, многае. *П. краны. П. гайкі.*

**ПАЗАКРЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Закрыць, накрыць чым-н. усіх, многіх або ўсё, многае. *П. дзяцей коўдрамі.* **2.** *што.* Скласці што-н. разгорнутае — пра ўсё, многае. *П. парасоны.* **3.** *што.* Закрыць, спыніць доступ куды-н. ва ўсіх, многіх напрамках. *П. усе дарогі ў горад.* **4.** *што.* Спыніць дзейнасць асобных або многіх устаноў, прадпрыемстваў. *Увечары магазіны пазакрывалі.*

**ПАЗАКРЭ́СЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Закрэсліць усё, многае. *П. неадпаведныя словы.*

**ПАЗАКУПО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Закупорыць усё, многае. *П. бутэлькі.*

**ПАЗАЛА́ЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ла́зіць; -ла́зім, -ла́зіце, -ла́зяць; *зак.* **1.** Залезці, забрацца на што-н. — пра ўсіх, многіх. *Хлопчыкі пазалазілі на дрэвы.* **2.** Забрацца, пранікнуць куды-н. употай — пра ўсіх, многіх. *П. у чужыя агароды.*

**ПАЗАЛАЦІ́ЦЬ** *гл.* залаціць.

**ПАЗАЛЕ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Заляпіць, заклеіць чым-н. усё, многае; наклейваючы што-н., укрыць усю паверхню. *П. дзіркі глінай. П. сцены афішамі.* **2.** *каго-што.* Заляпіць, пакрыць сабой усё, многае або ўсіх, многіх. *Снег пазалеплівае прахожых.*

**ПАЗАЛЕ́ТАСЬ**, *прысл.* Два гады назад. *Гэта было п.* ‖ *прым.* **пазале́ташні**, -яя, -яе. *Пазалеташняя вясна.*

**ПАЗАЛЕ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Залячыць, загаіць усё, многае. *П. раны.*

**ПАЗАЛІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Заліць, затапіць усё, многае. *Паводка пазалівала паплавы.* **2.** Абліць, запэцкаць якой-н. вадкасцю ўсё, многае або ў многіх месцах. *П. абрус вінам.* **3.** Затушыць вадой усё, многае. *П. вогнішчы.* **4.** Пакрыць чым-н. вадкім, здольным зацвярдзець — пра ўсё, многае. *П. дарогі гудронам.*

**ПАЗАЛО́ТА**, -ы, *ДМ* -ло́це, *ж.* Тонкі слой золата на паверхні чаго-н. *Гадзіннік з пазалотай.* ‖ *прым.* **пазало́тны**, -ая, -ае.

**ПАЗАЛЯТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв., -а́е, -а́юць; *зак.* **1.** Заляцець, апынуцца дзе-н. — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Птушкі пазалятаі далёка.* **2.** Уляцець куды-н. — пра ўсіх, многіх ці ўсё, многае. *Галубы пазалятаі ў двор.*

**ПАЗАМА́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Замазаць, заляпіць чым-н. усё, многае. *П. надпісы на сцяне.* **2.** Запэцкаць, забрудзіць усё, многае. *П. рукі фарбай.*

**ПАЗАМАКА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв., -а́е, -а́юць; *зак.* **1.** Стаць мокрым, замокнуць — пра ўсё, многае. *Сена пазамакала.* **2.** Набрыняўшы, перастаць цячы — пра ўсё, многае. *Бочкі пазамакалі.*

**ПАЗАМА́ТАЧНЫ**, -ая, -ае. *У пацыенткі была пазаматачная цяжарнасць* (калі плод развіваецца па-за маткай).

**ПАЗАМІНУ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які папярэднічаў мінуламу, пазалеташні. *П. год.*

**ПАЗАМО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго.* Замарыць усіх, многіх. *П. коней.*

**ПАЗАМО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Замачыць, зрабіць мокрым усё, многае. *П. ногі.*

**ПАЗАМО́ШЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Замасціць усё, многае. *П. вуліцы.*

**ПАЗАМУРО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Закласці мурожкай усё, многае. *П. праёмы ў сценах.* **2.** *каго-што.* Змясціць усё, многае або ўсіх, многіх у памяшканні, тайніку, наглуха закладзеным мурожкай. **3.** *перан., што.* Пакрыць снегам, лёдам усё, многае (разм.). *Мароз пазамуроўваў вокны.*

**ПАЗАМЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Адмыць, замыць усе плямы, не мыючы ўсёй адзежы. **2.** Сапсаваць частым ці няўмелым мыццём усё, многае. *П. бялізну.* **3.** Занесці пяском усё, многае. *Ямы ў рэчцы пазамывала* (безас.) *пяском.*

**ПАЗАМЫКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Замкнуць, зачыніць на ключ усё, многае ці ўсіх, многіх. *П. шуфляды.*

**ПАЗАМЯРЗА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Пакрыцца лёдам, замерзнуць — пра ўсё, многае. *Рэкі пазамярзалі.* **2.** Загінуць ад холаду — пра ўсіх, многіх або моцна замерзнуць — пра ўсіх, многіх. *Вераб'і пазамярзалі на марозе.*

**ПАЗАМЯТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Змесці, сабраць у адно месца ўсё, многае. *П. смецце ў кут.* **2.** *каго-што.* Занесці, засыпаць (снегам, пяском і пад.) усё, многае ці ўсіх, многіх. *Снег пазамятаў усе сцежкі.*

**ПАЗАНДЗІ́РАВАЦЬ** *гл.* зандзіраваць.

**ПАЗАНО́СІЦЬ**, -но́шу, -но́сіш, -но́сіць; -но́шаны; *зак., каго-што.* **1.** Занесці, даставіць куды-н. усіх, многіх або ўсё, многае. *П. інструменты ў кладоўку.* **2.** Упісаць куды-н. усіх, многіх або ўсё, многае. *П. студэнтаў у спісы. П. рахункі ў рэестр.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Засыпаць, замесці ўсё, многае або ўсіх, многіх. *Завіруха пазаносіла снегам усе дарогі.*

**ПАЗАНО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Занасіць усё, многае. *П. адзенне.*

**ПАЗАПА́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Запаяць усё, многае. *П. каструлі.*

**ПАЗАПАКО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Запакаваць усё, многае. *П. рэчы.*

**ПАЗАПА́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Запаліць, прымусіць гарэць усё, многае. *П. ліхтары.*

**ПАЗАПАЎНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* **1.** Запоўніць, заняць чым-н. усё, многае. *П. бочкі вадой.* **2.** Упісаць куды-н. усё, многія звесткі. *П. табелі.*

**ПАЗАПІ́СВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Запісацца ў спісы — пра ўсіх, многіх. *Многія пазапісваліся ў атрады добраахвотнікаў.*

**ПАЗАПІ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Запісаць, занесці на паперу ўсё, многае. *П. свае думкі.* **2.** *што.* Запісаць, нанесці на плёнку, пласцінку ўсё, многае. *П. песні на плёнку.* **3.** *каго-што.* Унесці ў спіс, рэестр і пад. ўсіх, многіх ці ўсё, многае; уключыць у лік каго-н. усіх, многіх. *П. у сведкі.*

**ПАЗАПІХА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны *і* **ПАЗАПІ́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Запхнуць куды-н. усё, многае або ўсіх, многіх. *П. мох у шчыліны.*

**ПАЗАПЛА́НАВЫ**, -ая, -ае. Які не ўваходзіць у план, які выконваецца звыш плана. *Пазапланавае заданне.* ‖ *наз.* **пазапла́навасць**, -і, *ж.*

**ПАЗАПЛЫВА́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -áе; -áем, -áеце, -áюць; *зак.* Заплысці куды-н. — пра ўсіх, многіх. *Хлопчыкі пазаплывалі далёка ад берага.*

**ПАЗАПЛЫВА́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -áе; -áем, -áеце, -áюць; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*), *чым* і *без дап.* Заплысці, пакрыцца або напоўніцца чым-н. — пра ўсё, многае. *Шчыліны пазаплывалі смалой.* **2.** Распаўнець — пра ўсіх, многіх (разм.). *Твары пазаплывалі тлушчам.*

**ПАЗАПЛЯТА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* **1.** Пераплятаючы, сплесці, заплесці ўсё, многае. *П. косы. П. дзіркі ў тыне.* **2.** *чым.* Аплятаючы, пакрыць чым-н. усё, многае. *Павукі пазапляталі куткі павуціннем.*

**ПАЗАПРАГА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што.* Запрэгчы ўсіх, многіх. *П. коней.*

**ПАЗАПУХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв., -áе, -áюць; *зак.* Запухнуць — пра многае. *Пазапухалі вочы ад сну.*

**ПАЗАРАСТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -áе; -áем, -áеце, -áюць; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Зарасці якой-н. расліннасцю — пра ўсё, многае. *Грады пазарасталі пустазеллем.* **2.** Пакрыцца валасамі, поўсцю і пад. — пра ўсіх, многіх. *Мужчыны пазарасталі барадамі.* **3.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Зажыць, зарубцавацца — пра ўсё, многае (разм.). *Пазарасталі раны.*

**ПАЗАРАЎНО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зараўнаваць, зрабіць роўным усё, многае. *П. ямы.*

**ПАЗАСА́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Засадзіць чым-н. усё, многае. *П. клумбы кветкамі.* **2.** *каго.* Пасадзіць прымусова ўсіх, многіх куды-н. (разм.). **3.** *каго за што.* Прымусіць займацца чым-н. усіх, многіх (разм.). *П. дзяцей за ўрокі.* **4.** *што.* Засунуць, уткнуць куды-н. усё, многае (разм.). *П. граблі пад вяроўку на возе.*

**ПАЗАСМЕ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Засмеціць усё, многае. *П. вуліцы.*

**ПАЗАСО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Засунуць, усунуць куды-н. усё, многае; зачыніць унутр чаго-н. усё, многае (разм.). *П. за пояс сякеры. П. шуфляды ў стол.* **2.** Зачыніць на засаўку ўсё, многае (разм.). *П. дзверы.* **3.** Падзець невядома куды ўсё, многае. *Куды пазасоўвалі мае пальчаткі?*

**ПАЗАСТАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -тае́цца; -таёмся, -таяце́ся, -таю́цца; *зак.* **1.** Застацца дзе-н., не пакінуць якога-н. месца — пра ўсіх, многіх. *Дзяўчаты пазаставаліся працаваць у вёсцы.* **2.** Не перастаць быць якім-н. — пра ўсё, многае ці ўсіх, многіх. *Дзверы пазаставаліся адчыненымі.* **3.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Захавацца, уцалець — пра ўсё, многае. *Усюды пазаставаліся сляды.* **4.** Апынуцца ў якім-н. стане — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Дзеці пазаставаліся сіротамі.* **5.** Апынуцца ззаду — пра ўсё, многае або ўсіх, многіх. *Фізічна слабыя пазаставаліся ззаду.*

**ПАЗАСТАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *што.* Заняць паверхню чаго-н. нейкай колькасцю якіх-н. прадметаў. *П. пакоі мэбляй.* **2.** *каго-што.* Закрыць, загарадзіць усё, многае ці ўсіх, многіх чым-н. пастаўленым. *П. дзверы шафамі.* **3.** *што.* Паставіць усё, многае за што-н. *П. кнігі за шкло.*

**ПАЗАСТРУ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Застругаць усё, многае. *П. алоўкі.*

**ПАЗАСТУ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Застудзіць усіх, многіх. *П. ногі.* **2.** *каго-што.* Прастудзіць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. дзяцей.*

**ПАЗАСЦІЛА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* **1.** Заслаць чым-н. усё, многае. *П. лыжкі.* **2.** Пакрыць сабою ўсё, многае. *Дым пазасціла̃ў наваколле.*

**ПАЗАСЫНА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -áе; -áем, -áеце, -áюць; *зак.* Заснуць — пра ўсіх, многіх. *Дзеці пазасыналі.*

**ПАЗАСЫПА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што.* Засыпаць, закідаць чым-н. усё, многае. *П. ямы.*

**ПАЗАСЫХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв., -áе, -áюць; *зак.* **1.** Засохнуць, высахнуць — пра ўсё, многае. *Кроў пазасыхала на параненай скуры.* **2.** Завяўшы, загінуць — пра ўсё, многае. *Дрэвы пазасыхалі.*

**ПАЗАСЯВА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Засеяць усё, многае. *П. палі.*

**ПАЗАСЯКА́ЦЬ**[1], -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* **1.** Зрабіць зарубкі на ўсім, многім. *П. дрэвы.* **2.** Параніць усё, многае. *Пазасякаў конь ногі.*

**ПАЗАСЯКА́ЦЬ**[2], -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго.* Збіць, забіць усіх, многіх розгамі, бізунамі, сякерай.

**ПАЗАСЯЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Засяліць усё, многае. *П. неабжытыя землі.*

**ПАЗАТО́ПТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што.* Затаптаць, патаптаць усё, многае; падушыць нагамі, капытамі ўсіх, многіх. *П. сляды. Каровы пазатоптвалі куранят.* **2.** *што.* Загасіць усё, многае, наступаючы нагамі. *П. вогнішча.* **3.** *што ў што.* Топчучы, умяць унутр чаго-н. усё, многае. *П. акуркі ў пясок.* **4.** *што.* Забрудзіць слядамі ўсё, многае (разм.). *Пазатоптвалі падлогу.*

**ПАЗАТО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Затачыць усё, многае. *П. сякеры.*

**ПАЗАТЫКА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* **1.** Заткнуць усё, многія адтуліны. *П. шчыліны пакуллем.* **2.** Засунуць за што-н., уткнуць куды-н. усё, многае. *П. сякеры за пояс.*

**ПАЗАЎЧО́РА**, *прысл.* Напярэдадні ўчарашняга дня, два дні назад. ‖ *прым.* **пазаўчара́шні**, -яя, -яе.

**ПАЗАФАРБО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зафарбаваць усё, многае. *П. слупкі дыяграм.*

**ПАЗАХО́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Захапіць усіх, многіх ці ўсё, многае; апярэдзіўшы каго-н., заняць для сябе ўсё, многае. *П. палонных. П. лепшыя землі.*

**ПАЗАЦІРА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак.* **1.** *што.* Зацерці, выцерці ўсё, многае. *П. надпісы.* **2.** *каго.* Сціснуць, заціснуць усіх, многіх. *Ільды могуць пазаціраць малыя судны.*

**ПАЗАЦЯ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зацягнуць куды-н. або ў што-н. усё, многае ці ўсіх, многіх. *П. лодкі да ракі.* **2.** *што*, пераважна *безас.* Пакрыць тонкім слоем чаго-н. усё, многае; загаіць усё, многае. *Сажалку пазацягвала раскай. Раны пазацягвала.* **3.** *што.* Туга сцягнуць усё, многае. *П. рукзакі.*

**ПАЗАЦЯРУ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Зацерушыць усё, многае або ўсіх, многіх. *Снег пазацярушваў сцежкі.*

**ПАЗАЧАРГО́ВЫ**, -ая, -ае. Які робіцца, праводзіцца па-за чаргой ці звыш чаргі. *П. сход.* ‖ *наз.* **пазачарго́васць**, -і, *ж.*

**ПАЗАЧА́САВЫ**, -ая, -ае. Не абмежаваны рамкамі часу, які разглядаецца па-за часам. ‖ *наз.* **пазача́савасць**, -і, *ж.*

**ПАЗАЧЫНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *што.* Зачыніць усё, многае. *П. вокны і дзверы.* **2.** *каго.* Зачыніўшы, пакінуць у памяшканні ўсіх, многіх. *П. птушак у клетках.*

**ПАЗАЧЭ́СВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зачасаць, прычасаць усё, многае. *П. валасы.*

**ПАЗАЧЭ́СВАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зачасаць, завастрыць усё, многае. *П. колле.*

**ПАЗАШКО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца па-за школай. *Пазашкольная работа.*

**ПАЗАШПІ́ЛЬВАЦЦА**, -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Зашпіліцца — пра ўсіх, многіх. *Дзеці пазашпільваліся на ўсе гузікі.*

**ПАЗАШПІ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зашпіліць усё, многае. *П. гузікі.*

**ПАЗАШПУНТО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зашпунтаваць усё, многае. *П. бочкі.*

**ПАЗАШРУБО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зашрубаваць усё, многае. *П. гайкі.*

**ПАЗАШТА́ТНЫ**, -ая, -ае. Які не знаходзіцца ў штаце; прызначаны для работнікаў, што не знаходзяцца ў штаце. *П. карэспандэнт. Пазаштатная пасада.*

**ПАЗАШЧАМЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны *і* **ПАЗАШЧЭ́МЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зашчаміць усё, многае. *П. пальцы.*

**ПАЗАШЧАПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны *і* **ПАЗАШЧЭ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Закрыць на зашчэпку, кручок усё, многае. *П. дзверы.*

**ПАЗАШЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Зашыць усё, многае. *П. дзіркі.* **2.** Забіць дошкамі ўсё, многае. *П. франтоны.*

**ПАЗБА́ВІЦЦА**, -а́ўлюся, -а́вішся, -авіцца; *зак.* **1.** *каго-чаго* і *ад каго-чаго.* Збавіцца, сумець вызваліцца ад каго-, чаго-н. *П. недахопаў.* **2.** *чаго.* Страціць што-н., застацца без чаго-н. *П. самастойнасці.* ‖ *незак.* **пазбаўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **пазбаўле́нне**, -я, *н.*

**ПАЗБА́ВІЦЬ**, -а́ўлю, -а́віш, -а́віць; -а́ўлены; *зак.* **1.** *каго-чаго.* Адняць што-н., пакінуць без чаго-н. *П. маёмасці. П. волі.* **2.** *ад каго-чаго* і *чаго.* Вызваліць, даць магчымасць пазбегнуць чаго-н. *П. ад клопатаў.* ‖ *незак.* **пазбаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **пазбаўле́нне**, -я, *н.*

**ПАЗБАЎЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* пазбавіцца, пазбавіць. **2.** ○ **Пазбаўленне правоў** (афіц.) — адняцце палітычных і грамадзянскіх правоў на пэўны тэрмін як мера пакарання за ўчыненыя злачынствы.

**ПАЗБЕ́ГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -бе́гнуў *і* -бе́г, -гла; -ні; *зак., чаго.* Збавіцца, выратавацца ад чаго-н. *П. гібелі.* ‖ *незак.* **пазбяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАЗБІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Збіць, прымусіць адваліцца ўсё, многае. *П. яблыкі.* **2.** *каго-што.* Паваліць, прымусіць упасці ўсіх, многіх; падстрэліўшы, прымусіць упасці ўсё, многае або ўсіх, многіх. *П. людзей з ног. П. качак.* **3.** *каго-што.* Рэзкім рухам зрушыць з пэўнага месца, адцясніць адкуль-н. усё, многае або ўсіх, многіх; збіць з дарогі, з правільнага напрамку ўсіх, многіх. *П. прыцэлы ў кулямётаў. П. людзей з курсу.* **4.** *каго.* Моцна пабіць, знявечыць пабоямі ўсіх, многіх. **5.** *што.* Сапсаваць ударамі, зрабіць нягодным усё, многае; абадраць скуру, кару і пад. ў многіх месцах. *П. капыты. П. калені.* **6.** *што.* Збіваючы, прымацаваць адно да другога ўсё, многае. *П. скрынкі цвікамі.*

**ПАЗБІРА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Сабрацца ў адным месцы — пра ўсіх, многіх. *Да вагона пазбіраліся людзі.*

**ПАЗБІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Сабраць, сканцэнтраваць у адным месцы ўсіх, многіх ці ўсё, многае. *П. людзей на сход.* **2.** *што.* Падабраць, падняць усё тое, што ўпала, рассыпалася і пад.; падабраўшы, скласці ў адно месца ўсё, многае. *П. рассыпаны гарох. П. галлё ў кучы.* **3.** *што.* Скласці, саставіць з розных частак многа чаго-н. *П. станкі.* **4.** *што* і *чаго.* Збіраць што-н. на працягу якога-н. часу. *Пазбіраем яшчэ з гадзіну грыбы.*

**ПАЗБЯГА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* пазбегнуць. **2.** *каго-чаго* і *з інф.* Унікаць каго-, чаго-н., ухіляцца ад каго-, чаго-н. *П. знаёмых. П. сустракацца з кім-н.*

**ПАЗБЯГА́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* **1.** Збегчы, спусціцца ўніз — пра ўсіх, многіх. *Хлапчукі пазбягалі з лесвіцы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сцячы — пра ўсё, многае. *Вада пазбягала з палеткаў.* **3.** Збегчы, уцячы — пра ўсіх, многіх. *Ад спякоты каровы пазбягалі ў кусты.*

**ПАЗВА́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зваліць, паваліць усіх, многіх ці ўсё, многае або спілаваць, ссячы ўсё, многае. *Вецер пазвальваў слупы. П. сосны.* **2.** *каго-што.* Скінуць адкуль-н. усё, многае або ўсіх, многіх. *Ты там не пазвальвай дзяцей з печы.* **3.** *што.* Неакуратна зваліць, скідаць усё, многае. *П. рэчы ў кучу.*

**ПАЗВАЛЬНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго (што).* Зволніць усіх, многіх. *П. з пасад.*

**ПАЗВАНІ́ЦЬ** *гл.* званіць.

**ПАЗВАНО́К**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.* Асобная косць (або храсток) пазваночніка. *Шыйныя пазванкі.* ‖ *прым.* **пазвано́чны**, -ая, -ае. *Пазваночныя жывёлы* (вышэйшыя жывёлы, якія маюць касцявы або храстковы шкілет).

**ПАЗВАНО́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У чалавека і пазваночных жывёл: асноўная частка восевага шкілета, які складаецца са злучаных паміж сабой пазванкоў; з'яўляецца органам апоры.

**ПАЗВАРО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. адз. не ўжыв.*), *без дап.* Змяніць напрамак свайго руху — пра ўсіх, многіх. *Жанчыны пазварочвалі са сцежкі.* **2.** *каго-што.* Накіраваць з якога-н. напрамку ў іншы бок усё, многае ці ўсіх, многіх. *П. машыны на прасёлачную дарогу.* **3.** *што.* Зрушыць з месца, скінуць усё, многае (разм.). *П. мяшкі з воза.* **4.** *што.* Звярнуць, збіць на бок усё, многае (разм.). *П. слупы.* **5.** *што.* Скідаць, зваліць разам усё, многае (разм.). *П. дровы ў кучу.*

**ПАЗВА́ЦЬ** *гл.* зваць.

**ПАЗВЕ́ШВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Звесіцца, нахіліцца, апусціцца — пра ўсё, многае або ўсіх, многіх. *Дзеці пазвешваліся з печы.*

**ПАЗВЕ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Звесіць, нахіліць, апусціць усё, многае. *П. галовы.*

**ПАЗВІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Скручваючы, звіць усё, многае. *П. вяроўкі.* **2.** Зматаць усё, многае. *П. ніткі ў клубок. П. пражу з матавіла.* **3.** Звіць, зляпіць (пра гнёзды). *Ластаўкі пазвівалі гнёзды пад страхой.*

**ПАЗВІСА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; *зак.* Апусціцца, звіснуць уніз — пра ўсё, многае. *Галіны пазвісалі над вадой.*

**ПАЗВО́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзіцца; *зак.* Звесціся, перастаць існаваць — пра ўсіх, многіх. *Пазводзіліся ў нас танкарунныя авечкі.*

**ПАЗВО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *зак.* **1.** *каго (што).* Звесці ўніз усіх, многіх. *П. дзяцей з ганка на двор.* **2.** *каго (што).* Адвесці на другое месца ўсіх, многіх. *П. коней убок.* **3.** *што.* Пра сутаргу: раптоўна і балюча скараціць мышцы. *Сутарга пазводзіла ногі.* **4.** *каго-што.* Звесці куды-н., злучыць, аб'яднаць у што-н. усіх, многіх. *П. палкі ў дывізію.* **5.** *каго-што.* Знішчыць, перавесці ўсіх, многіх ці ўсё, многае. *П. лясы.* **6.** *перан., каго.* Збіць з правільнага шляху ўсіх, многіх. *Гэта такія сябры пазводзілі хлопцаў.*

**ПАЗВО́ЗІЦЬ**, -зво́жу, -зво́зіш, -зво́зіць; -зво́жаны; *зак.* **1.** *што.* Звезці ў адно месца ўсё, многае. *П. жыта ў зернясховішча.* **2.** *каго-што.* Забраўшы, адвезці куды-н. усё, многае або ўсіх, многіх. *П. каменне з палёў.* **3.** *каго-што.* Везучы, перамясціць зверху ўніз усё, многае ці ўсіх, многіх. *П. дзяцей на санках.* **4.** *каго-што.* Едучы, узяць з сабою ўсё, многае або ўсіх, многіх. *П. чужыя кнігі.*

**ПАЗВЯ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Звязаць, змацаваць усё, многае. *П. вяроўкі.* **2.** *каго-што.* Перавязаць, звязаць чым-н. усё, многае або ўсіх, многіх. *П. рукі бандытам.*

**ПАЗГАНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *каго (што).* Сагнаць, прагнаць адкуль-н. усіх, многіх. *П. кароў з пасеваў.* **2.** *што.* Сагнаць з паверхні ўсё, многае. *Завея пазганяла снег з дарог.* **3.** *каго-што.* Сагнаць, прымусіць сысціся ў адно месца ўсіх, многіх. *П. коней у табун.*

**ПАЗГІНА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Сагнуцца — пра ўсіх, многіх. *Людзі пазгіналіся ад сустрэчнага ветру.*

**ПАЗГІНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Сагнуць усіх, многіх ці ўсё, многае. *П. галіны. Гора не пазгінала людзей* (перан.).

**ПАЗГЛА́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Згладзіць, зрабіць гладкім усё, многае. *П. няроўнасці.*

**ПАЗГО́РТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Згарнуць усё, многае. *П. хусткі.* **2.** Зрабіць скручваннем многа чаго-н. (разм.). *П. папяросы.* **3.** Згортваючы, сабраць у адно месца ўсё, многае. *П. збожжа ў кучу.*

**ПАЗГРАБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Згрэбці ў адно месца ўсё,

многае. *П. сена ў кучкі.* **2.** Грабучы, скінуць адкуль-н. усё, многае. *П. снег з дахаў.*

**ПАЗГРЫЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Згрызці ўсё, многае. *Бабры пазгрызалі асіны.*

**ПАЗДАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -дае́цца; -даёмся, -даяцёся, -даю́цца; *зак.* Здацца — пра ўсіх, многіх. *П. ў палон.*

**ПАЗДАВА́ЦЬ**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць; *зак.* **1.** *каго-што.* Здаць, перадаць куды-н., каму-н. усё, многае ці ўсіх, многіх. *П. кнігі ў бібліятэку.* **2.** *што.* Здаць у часовае карыстанне ўсё, многае. *П. кватэры кватарантам.* **3.** *што.* Раздаць усе карты ў гульні. **4.** *што.* Здаць іспыты. *П. экзамены.*

**ПАЗДАРАВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў здаравейшым. *Паздаравелае дзіця.*

**ПАЗДАРАВЕ́ЦЬ** *гл.* здаравець.

**ПАЗДАРО́ВІЦЦА**, -іцца; *безас.; зак.* У выразе: **не паздаровіцца** *каму* (разм.) — будзе дрэнна каму-н. за што-н., з-за чаго-н. *За невыкананне работы нам не паздаровіцца.*

**ПАЗДАРО́ЎКАЦЦА** *гл.* здароўкацца.

**ПАЗДЗІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Садраць што-н. у многіх месцах, садраць усё, многае. *П. фарбу з шыбаў. П. рукі аб маліннік.* **2.** Рэзкім рухам зняць усё, многае (разм.). *П. боты з ног.*

**ПАЗДЫМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Сфатаграфаваць, адлюстраваць на фота- і кінаплёнцы ўсіх, многіх або ўсё, многае. **2.** *што.* Стварыць (кінафільмы).

**ПАЗДЫХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Здохнуць — пра ўсіх, многіх (пра жывёлу). *Парасяты паздыхалі.*

**ПАЗЕЛЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Пакрыты зялёнай цвіллю, раскаю, мохам і пад. *Пазелянелая страха.* **2.** Пра колер твару: бледны, зямлістага адцення.

**ПАЗЕЛЯНЕ́ЦЬ** *гл.* зелянець.

**ПАЗЕЛЯНІ́ЦЬ** *гл.* зеляніць.

**ПАЗЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн., неадабр.). Чалавек, які прымае позу (у 2 знач.), стараецца стварыць уражанне сваімі паводзінамі, знешнасцю. ‖ *ж.* **пазёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **пазёрскі**, -ая, -ае.

**ПАЗЁРСТВА**, -а, *н.* (кніжн., неадабр.). Паводзіны пазёра.

**ПАЗЖЫНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ты; *зак., што.* Зжаць усё, многае. *П. усё збожжа.*

**ПАЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* **1.** Прымаць якую-н. позу, служачы натурай для фатографа або мастака. **2.** Паводзіць сябе як пазёр, фальшыва (кніжн., неадабр.). ‖ *наз.* **пазі́раванне**, -я, *н.*

**ПАЗІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Накіроўваць позірк куды-н., на каго-, што-н., глядзець. *Задуменна п. у далеч.* **2.** Выглядваць з-за чаго-н., адкуль-н. *П. з-за вугла.* **3.** Час ад часу глядзець на каго-, што-н., куды-н. *Часта п. на гадзіннік.*

**ПАЗІТРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Элементарная часціца з дадатным зарадам, з масай, роўнай масе электрона. ‖ *прым.* **пазітро́нны**, -ая, -ае.

**ПАЗІТЫВІ́ЗМ**, -у, *м.* Кірунак у філасофіі, які сцвярджае адзінай крыніцай сапраўдных ведаў спецыяльныя навукі ці іх сукупнасць і адмаўляе філасофію як асобную галіну ведаў. ‖ *прым.* **пазітывісцкі**, -ая, -ае.

**ПАЗІТЫВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік пазітывізму.

**ПАЗІТЫ́Ў**, -тыва, *мн.* -ты́вы, -ты́ваў, *м.* (спец.). Здымак з негатыва, што дае адлюстраванне, светлыя і цёмныя часткі або колеры якога адпавядаюць іх размеркаванню ў рэчаіснасці. ‖ *прым.* **пазіты́ўны**, -ая, -ае.

**ПАЗІТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пазітыў. **2.** Заснаваны на фактах, вопыце; станоўчы (кніжн.). *Пазітыўная праграма.* **3.** Выражаны ў станоўчай форме; *проціл.* негатыўны (кніжн.). *П. бок справы.* ‖ *наз.* **пазіты́ўнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**ПАЗІ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Палажэнне, размяшчэнне (кніжн.). *Удалая п. ладдзі ў шахматнай партыі. Галосны ў моцнай пазіцыі.* **2.** Месца размяшчэння войск для баявых дзеянняў. *Артылерыйская, мінамётная п. Здаць свае пазіцыі* (таксама перан.). **3.** *мн.* Раён ваенных дзеянняў. *Адправіцца на пазіцыі.* **4.** *перан.* Пункт погляду, думка ў якім-н. пытанні (кніжн.). *Заняць пазіцыю чакання. З пазіцыі філасофскага матэрыялізму. Палітыка з пазіцыі сілы.* **5.** Пастава цела, поза. *Пазіцыі класічнага танца. Стартавая п. спрынтара.* ‖ *прым.* **пазіцы́йны**, -ая, -ае (да 1—3 знач.). *Пазіцыйная вайна* (якая вядзецца на доўгачасовых баявых пазіцыях).

**ПАЗЛА́ЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -зіць; -зім, -зіце, -зяць; *зак.* **1.** Злезці адкуль-н. — пра ўсіх, многіх. *Хлопцы пазлазілі з веласіпедаў.* **2.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Знікнуць з паверхні чаго-н. *Ад сонца пазлазіла скура з цела.*

**ПАЗЛЕ́ПЛІВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Зляпіцца — пра ўсё, многае. *Лісты кнігі пазлепліваліся.*

**ПАЗЛЕ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зляпіць, склеіць усё, многае. *П. лісты клеем.*

**ПАЗЛІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Зліць з розных пасудзін у адну ўсё, многае. *П. малако ў бітон.* **2.** Зліць адкуль-н. усё, многае. *П. ваду з радыятараў.* **3.** *перан.* Злучыць у адно цэлае ўсё, многае. *П. атрады ў брыгаду.*

**ПАЗЛУЧА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* **1.** Злучыць, змацаваць усё, многае. *П. правады.* **2.** Устанавіць сувязь паміж усім, многім. *П. берагі мастамі.*

**ПАЗЛУЧА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго.* Злучыць для палавога акта ўсіх, многіх (пра жывёлу).

**ПАЗЛЯТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Зляцецца разам — пра ўсіх, многіх. *Птушкі пазляталіся на раллю. Пазляталіся людзі на ратунак* (перан.).

**ПАЗЛЯТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* **1.** Зляцець адкуль-н. — пра ўсіх, многіх. *Куры пазляталі з седала.* **2.** Паляцець, вылецець куды-н. — пра ўсіх, многіх. *Шпакоў не відаць, некуды пазляталі.* **3.** Зваліцца — пра ўсіх, многіх ці ўсё, многае (разм.). *Шапкі пазляталі з коннікаў.*

**ПАЗМАГА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., з кім-чым, за каго-што* і *без дап.* Прыняць удзел у барацьбе; змагацца некаторы час. *Давялося доўга п. за справядлівасць.*

**ПАЗМАЦО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Змацаваць усё, многае. *П. бярвенне скобамі.*

**ПАЗМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца зменамі. *Працаваць пазменна* (прысл.).

**ПАЗМРАЧНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які зрабіўся змрочным, змрачнейшым. *Пазмрачнелае неба. П. твар.*

**ПАЗМРАЧНЕ́ЦЬ** *гл.* змрачнець.

**ПАЗМЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Змыць, ліквідаваць мыццём усё, многае. *П. фарбу з рук.* **2.** *каго-што.* Змыць, знесці адкуль-н. усё, многае або ўсіх, многіх. *Вада пазмывала пасевы.*

**ПАЗМЯТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Змесці з якой-н. паверхні ўсё, многае. *П. пыл з мэблі.* **2.** Метучы, сабраць у адно месца ўсё, многае. *П. лісце ў кучу.*

**ПАЗНА...** (*гл.* **позна...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «позна...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *пазнаспеласць, пазнаспелы.*

**ПАЗНАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** Які мае адносіны да пазнання (у 2 знач.). *П. працэс.* **2.** Які садзейнічае пазнанню, пашырэнню ведаў. *Пазнавальнае значэнне мастацтва.* ‖ *наз.* **пазнава́льнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПАЗНАВА́ЦЦА**, -наю́ся, -нае́шся, -нае́цца; -наёмся, -наяце́ся, -наю́цца; *незак.* **1.** *гл.* пазнацца. **2.** Станавіцца вядомым, пазнаным. *Сябры пазнаюцца ў бядзе.*

**ПАЗНАЁМІЦЦА** *гл.* знаёміцца.

**ПАЗНАЁМІЦЬ** *гл.* знаёміць.

**ПАЗНА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* пазнаць. **2.** Набыццё ведаў, спасціжэнне заканамернасцей аб'ектыўнага свету. *П. законаў прыроды. Тэорыя пазнання.*

**ПАЗНАХО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *зак., каго-што.* Адшукаць усіх, многіх ці ўсё, многае. *П. неабходныя адрасы.*

**ПАЗНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Прызнаць у кім-, чым-н. знаёмага, знаёмае. *Пакой быў такі чысты, што яго нельга было п.* **2.** Тое, што і *апазнаць.* **3.** *каго-што.* Зразумець, набыць веды пра што-н., атрымаць сапраўднае ўяўленне пра каго-, што-н. (кніжн.). *П. тайны Сусвету. П. народнае жыццё.* **4.** *што.* Зведаць, перажыць (кніжн.). *П. гора.* ‖ *незак.* **пазнава́ць**, -наю́, -нае́ш, -нае́; -наём, -наяце́, -наю́ць. ‖ *наз.* **пазна́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПАЗНА́ЧЫЦЬ** *гл.* значыць[1].

**ПАЗНЕ́ЙШЫ**, -ая, -ае. Які адбыўся, наступіў пасля чаго-н. *Пазнейшыя звесткі.*

**ПАЗНІКА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -áе; -áем, -áеце, -áюць; *зак.* Знікнуць, перастаць існаваць — пра ўсё, многае; прапасці, схавацца — пра ўсё, многае, усіх, многіх. *Пазнікалі многія расліны на палях. Недзе пазнікалі патрэбныя рэчы. Байцы пазнікалі ў цемры.*

**ПАЗНІМА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зняць адкуль-н. усё, многае або ўсіх, многіх; здзець з сябе ўсё, многае; адазваць адкуль-н. усіх, многіх. *П. дзверы з завесаў. П. шапкі. П. дывізіі з фронту.* **2.** *што.* Адмяніць усё, многае, адмовіцца ад усяго, многага. *П. судзімасць. П. прапановы.* **3.** *што.* Садраць, зняць з якой-н. паверхні ўсё, многае. *П. бінты з ран.* **4.** *каго-што.* Пазбавіць усіх, многіх магчымасці дзейнічаць, вызваліць ад чаго-н. усіх, многіх. *П. баксёраў са спаборніцтваў. П. з работы.* **5.** *што.* Скапіраваць усё, многае. *П. копіі з дакументаў.* **6.** Тое, што і *паздымаць.*

**ПАЗНІ́ЦЦА**, пазнюся, пóзнішся, пóзніцца; *незак.* **1.** З'яўляцца пазней за вызначаны час. *П. на заняткі.* **2.** Выконваць што-н. пазней, чым трэба. *П. з сяўбой.* **3.** Затрымлівацца дзе-н. *Не пазніся, завідна прыходзь дамоў.*

**ПАЗНІШЧА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што.* Знішчыць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. ваўкоў. П. лясы.*

**ПАЗНО́ГАЦЬ**, -гця, *мн.* -гці, -гцяў, *м.* Тое, што і *ногаць.* ‖ *прым.* **пазнóгцевы**, -ая, -ае.

**ПАЗНО́СІЦЬ**, -óшу, -óсіш, -óсіць; *зак.* **1.** *каго-што.* Знесці адкуль-н. усё, многае або знесці ў адно месца ўсіх, многіх ці адно, многае. *П. бульбоўнік з агарода. П. параненых у санітарную машыну.* **2.** *што.* Спусціць уніз усё, многае. *П. сена з вышак.* **3.** *што.* Сарваўшы, разбурыўшы, знесці з месца ўсё, многае. *П. масты.* **4.** *што.* Пайшоўшы, узяць з сабой усё, многае. *П. чужыя рэчы.*

**ПАЗНО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Доўгай носкай давесці да нягоднасці ўсё, многае. *П. абутак.*

**ПАЗРАЗА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны *зак.* **1.** *што.* Зрэзаць усё, многае; зняць няроўнасці ўсюды, у многіх месцах. *П. кветкі з клумбы. П. купіны.* **2.** *перан., каго (што).* Праваліць на экзамене ўсіх, многіх (разм.).

**ПАЗРАСТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *зак.* Зрасціся пры пераломах — пра многае. *Паламаныя косці пазрасталіся.*

**ПАЗРЫВА́ЦЬ**[1], -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* **1.** Аддзяліць ад галіны, сцябла ўсё, многае. *П. кветкі.* **2.** З сілай рвануўшы, садраць усё, многае. *Ураган пазрываў дахі.*

**ПАЗРЫВА́ЦЬ**[2], -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Зрыць што-н. у многіх месцах, зрыць усё, многае. *Дзікі пазрывалі ўсё поле.*

**ПАЗРЭ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* Тое, што і *пазразаць.*

**ПАЗУМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тасьма, звычайна шытая золатам або срэбрам; галун. *Абшыты пазументамі кафтан.* ‖ *прым.* **пазумéнтавы**, -ая, -ае *і* **пазумéнтны**, -ая, -ае.

**ПА́ЗУХА**, -і, *ДМ* -зусе, *мн.* -і, -зух, *ж.* **1.** Прастора паміж грудзямі і адзеннем, што прылягае да іх. *Трымаць што-н. за пазухай. Дастаць з-за пазухі.* **2.** Поласць у асобных органах цела (спец.). *Запаленне лобных пазух.* ‖ *прым.* **пáзушны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПАЗЫ́КА**, -і, *ДМ* -зыцы, *мн.* -і, -зык, *ж.* **1.** Фінансавая аперацыя, якая заключаецца ў атрыманні грошай у доўг на пэўных умовах. *Дзяржаўная ўнутраная п.* **2.** Выдача ў доўг на пэўных умовах грошай, рэчаў і пад., а таксама грошы, рэчы і пад., узятыя ў доўг. *Грашовая п. Незваротная п.* ‖ *прым.* **пазыкóвы**, -ая, -ае. *Пазыковая аперацыя. П. банк.*

**ПАЗЫКАТРЫМА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Уладальнік аблігацый пазыкі (у 1 знач.).

**ПАЗЫЎНЫ́**, -áя, -óе. **1.** Які служыць для прыцягвання ўвагі. *П. сігнал.* **2.** *у знач. наз.* **пазыўны́я**, -ы́х. Спецыяльныя сігналы для апазнавання радыёстанцыі, судна, вайскóвай часці і пад. *Пазыўныя радыёстанцыі. Прыняць чые-н. пазыўныя.*

**ПАЗЫ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *што* і *чаго каму.* Даць у доўг. *П. каму-н. грошы* або *грошай.* **2.** *што* і *чаго ў каго.* Узяць у доўг. *П. у каго-н. грошы (грошай).* ◊ **У сабакі вачэй пазычыць** або **пазычыўшы** (разм., неадабр.) — страціць сумленне, пачуццё сораму. ‖ *незак.* **пазычáць**, -áю, -áеш, -áе. ◊ **Не пазычаць** *чаго* — ёсць, хапае. *Гэтаму чалавеку розуму не пазычаць.*

**ПАЗ'ЯДА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* **1.** З'есці за некалькі прыёмаў усё, многае. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пашкодзіць ядавітым рэчывам што-н. у многіх месцах, усюды. *Кіслата паз'ядала скуру на руках.*

**ПАЗ'ЯЗДЖА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -áецца; -áемся, -áецеся, -áюцца; *зак.* З'ехацца ў адно месца — пра ўсіх, многіх. *Спецыялісты паз'язджаліся на канферэнцыю.*

**ПАЗ'ЯЗДЖА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -áе; -áем, -áеце, -áюць; *зак.* **1.** З'ехаць, спусціцца адкуль-н. — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Лыжнікі паз'язджалі з гары.* **2.** Едучы, павярнуць куды-н. — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Машыны паз'язджалі ўбок.* **3.** Выехаць адкуль-н. — пра ўсіх, многіх. *Моладзь паз'язджала з вёскі ў горад.* **4.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*), *перан.* Ссунуцца, збіцца — пра ўсё, многае. *Панчохі паз'язджалі з ног.*

**ПАЗЯМЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да ўладання і карыстання зямлёй. *П. падатак.*

**ПАЗЯХА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* Міжвольна сутаргава ўдыхаць і адразу выдыхаць паветра з шырока адкрытым ротам (пры жаданні спаць, пры стоме). ‖ *аднакр.* **пазяхну́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **пазяхáнне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **пазяхáльны**, -ая, -ае (спец.). *Пазяхальныя рухі.*

**ПАІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Спецыяльны посуд, прыстасаванне паіць жывёлу, птушак. *Аўтаматычная п.*

**ПАІ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Кубачак з доўгім носікам і паўзакрытым верхам, з якога пояць ляжачых хворых.

**ПАІ́ЦЬ**, паю́, пóіш, пóіць; паі́; пóены; *незак., каго (што).* **1.** Даваць піць. *П. дзяцей. П. і карміць сям'ю* (мець на ўтрыманні, даваць пражытак). **2.** Даваць піць спіртныя напіткі, частаваць чым-н. алкагольным. *Не ўздумайце яго п.: яму трэба сёння садзіцца за руль.* ‖ *зак.* **напаі́ць**, -паю́, -пóіш, -пóіць; -пóены. ‖ *наз.* **паéнне**, -я, *н.* (да 1 знач.). *П. жывёлы.*

**ПАЙ**, пáю, *мн.* паі́, паёў, *м.* Доля, якая ўносіцца ў агульную справу асобным яе ўладальнікам. *Уступны п. Кааператыўны п.* ‖ *прым.* **паявы́**, -áя, -óе.

**ПА́ЙКА** *гл.* паяць.

**ПАЙКО́ВЫ** *гл.* паёк.

**ПАЙМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які змяшчае пералік імён; які робіцца па імёнах. *П. спіс. Пайменнае галасаванне. Назваць усіх пайменна* (прысл.).

**ПАЙСЦІ́**, пайду́, пóйдзеш, пóйдзе; пайшóў, -шлá, -лó; пайдзі́; *зак.* Пачаць ісці (паводле ўсіх знач. дзеясл. «ісці»). *Хлопчык пайшоў* (пачаў хадзіць). *Пайшоў прэч!* (выбірайся). ◊ **Калі на тое пайшло** (разм.) — калі ўжо так трэба, калі так неабходна. **Так не пойдзе** (разм.) — так, пры такой умове нічога не атрымаецца, не выйдзе.

**ПА́ЙШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Уладальнік паю. *П. кааператыўнага таварыства.* ‖ *ж.* **пáйшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **пáйшчыцкі**, -ая, -ае.

**ПАК**[1], -а, *мн.* -і́, -óў, *м.* Стос, вязка пэўных прадметаў. *П. газет.*

**ПАК**[2], -у, *м.* (спец.). Шматгадовы палярны лёд. ‖ *прым.* **пáкавы**, -ая, -ае.

**ПАКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кавáны; *незак., што.* Складаць і звязваць у пак, вузел. *П. кнігі для перасылкі.* ‖ *зак.* **запакавáць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кавáны, **спакавáць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кавáны *і* **упакавáць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кавáны; *наз.* **упакóўка**, -і, *ДМ* -ўцы *і* **упакóўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **пакавáнне**, -я, *н. і* **пакóўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (спец.); *прым.* **пакавáльны**, -ая, -ае (спец.).

**ПАКАЁВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пакой. **2.** Хатні, звязаны са знаходжаннем у жылым памяшканні. *Пакаёвыя кветкі. П. сабака* (не дваровы). *Пакаёвая тэмпература* (звычайная для жылога памяшкання).

**ПАКАЁЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ёвак, *ж.* Служанка, якая прыбірае пакоі і выконвае некаторыя інш. работы. *Багатыя людзі наймаюць пакаёвак.*

**ПАКАЗА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Надпіс, стрэлка, прыбор ці іншае прыста-

саванне, якое паказвае што-н. *П. дарог. Светлавы п. П. скорасці.* **2.** Даведачныя кнігі або даведачны спіс у кнізе. *Бібліяграфічны п. Чыгуначны п.*

**ПАКАЗА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які дае падставу для якіх-н. вывадаў. *П. факт. Яго заява вельмі паказальная.* **2.** Які арганізаваны для ўсеагульнага азнаямлення. *П. суд.* **3.** Узорны, які служыць прыкладам для іншых. *Паказальная гаспадарка.* ‖ *наз.* **паказа́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАКАЗА́ННЕ**, -я, звычайна *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Адказ на допыце. *П. падсуднага.* **2.** Велічыня чаго-н., якая паказваецца вымяральным прыборам. *П. лічыльніка.*

**ПАКАЗА́ЦЦА**, -кажу́ся, -ка́жашся, -ка́жацца; -кажы́ся; *зак.* **1.** З'явіцца, стаць бачным. *З-за павароту паказалася машына.* **2.** Прыйсці, з'явіцца дзе-н. *П. дзе-н. пасля доўгай хваробы.* **3.** *каму.* Даць каму-н. паглядзець на сябе, агледзець сябе. *Ну, пакажыся, як ты выглядаеш у новым гарнітуры. П. ўрачу.* ‖ *незак.* **пака́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАКАЗА́ЦЬ**, -кажу́, -ка́жаш, -ка́жа; -кажы́; -ка́заны; *зак.* **1.** *каго-што, каму.* Даць магчымасць убачыць каго-, што-н., упэўніцца ў чым-н., навучыцца чаму-н. *П., як карыстацца паяльнікам.* **2.** *што, на каго-што.* Звярнуць чыю-н. увагу на каго-, што-н. (звычайна зрабіўшы рух, жэст у напрамку каго-, чаго-н.). *П. дарогу на станцыю. П. рукой на шыльду.* **3.** *каго-што, каму.* Даць убачыць, каб разгледзець, азнаёміцца. *П. хворага ўрачу. П. новы спектакль.* **4.** *каго-што.* Выявіць, праявіць. *П. веды.* **5.** *са злуч.* «што». Даць паказанне (у 1 знач.). *Усе, як адна, сведкі паказалі, што ў гэты дзень абвінавачанага дома не было.* **6.** *што* (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра вымяральныя прыборы: засведчыць, адзначыць. *Тэрмометр паказаў 38,8 °С. Гадзіннік паказаў поўнач.* **7.** *каму.* Правучыць каго-н., адпомсціць каму-н., даць зразумець, адчуць каму-н. што-н. (разм.). *Я ж яму пакажу за гэта!* ‖ *незак.* **пака́зваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—6 знач.). ‖ *наз.* **пака́з**, -у, *м.* (да 1—4 знач.). *П. спектакля.*

**ПАКА́ЗВАЦЬ**, -аю, -еш, -ае; *незак.*; *гл.* паказаць. ◊ **Вачэй не паказваць** *куды* (разм.) — не з'яўляцца дзе-н., у каго-н., не бываць. **Пальцам паказваць (тыкаць)** *на каго-што* (разм.) — указваць на каго-н., хто праявіў сябе з адмоўнага боку; звяртаць увагу на што-н.

**ПАКАЗНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які паказваецца як узор. *Паказныя тавары. Паказная стральба.* **2.** Разлічаны на знешняе ўражанне, прытворны. *Паказная сціпласць.*

**ПАКАЗУ́ХА**, -і, *ДМ* -зу́се, *ж.* (разм.). Выгляд усяго добрага, паспяховай дзейнасці; дзеянні, разлічаныя на знешні эфект, на тое, каб зрабіць добрае ўражанне на каго-н. *Устроілі паказуху перад начальствам.* ‖ *прым.* **паказу́шны**, -ая, -ае.

**ПАКА́ЗЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** У матэматыцы: **паказчык ступені** — лічбавае або літарнае абазначэнне, якое паказвае ступень, у якую ўзводзіцца дадзены лік або выраз. **2.** Тое, па чым можна меркаваць пра развіццё і ход чаго-н. *Паказчыкі высокай культуры і адукаванасці.*

**ПАКАЗЫТА́ЦЬ** *гл.* казытаць.

**ПАКАЛАМУ́ЦІЦЦА** *гл.* каламуціцца.

**ПАКАЛАМУ́ЦІЦЬ** *гл.* каламуціць.

**ПАКАЛЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Сваякі адной ступені роднасці ў адносінах да агульнага продка. *З пакалення ў п. перадаецца што-н.* (у спадчыну дзецям ад бацькі, малодшым ад старэйшых). **2.** Людзі блізкага ўзросту, якія жывуць у адзін час. *Сучаснае маладое п.* **3.** Група людзей, блізкіх па ўзросце, аб'яднаных агульнай дзейнасцю. *П. музыкантаў.*

**ПАКАЛЕ́ЧЫЦЦА** *гл.* калечыць.

**ПАКАЛЕ́ЧЫЦЬ** *гл.* калечыць.

**ПАКАЛМА́ЦІЦЦА** *гл.* калмаціцца.

**ПАКАЛМА́ЦІЦЬ** *гл.* калмаціць.

**ПАКАЛО́ЦЬ** *гл.* калоць[2].

**ПАКАЛЫХА́ЦЦА**, -ышу́ся, -ы́шашся, -ы́шацца; -ышы́ся; *зак.* Правесці некаторы час, калышучыся. *П. ў гамаку.*

**ПАКАЛЫХА́ЦЬ**, -ышу́, -ы́шаш, -ы́ша; -ышы́; -ыха́ны; *зак., каго-што.* Правесці некаторы час, калышучы каго-, што-н. *П. дзіця на арэлях.*

**ПАКАЛЫ́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што.* Злёгку або час ад часу калыхаць. *Лёгкі ветрык пакалыхваў фіранкі на вокнах.* ‖ *наз.* **пакалы́хванне**, -я, *н.*

**ПАКАМЯЧЫ́ЦЦА** *гл.* камячыцца.

**ПАКАМЯЧЫ́ЦЬ**, -мячу́, -ме́чыш, -ме́чыць; -ме́чаны; *зак., што.* **1.** *гл.* камячыць. **2.** Крыху скамячыць, змяць. *П. касцюм у дарозе.*

**ПАКАПРЫ́ЗІЦЬ** *гл.* капрызіць.

**ПАКАРАБА́ЦІЦЦА** *гл.* карабаціцца.

**ПАКАРАБА́ЦІЦЬ** *гл.* карабаціць.

**ПАКАРА́ННЕ**, я, *мн.* -і, -яў, *н.* Мера ўздзеяння за зробленае злачынства, правіннасць, кара. *Заслужанае п.*

**ПАКАРАЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *зак.* Стаць карацейшым. *Сукенка пакарацела. З надыходам зімы дні пакарацелі.* ‖ *наз.* **пакарачэ́нне**, -я, *н.*

**ПАКАРАЦІ́ЦЬ**, -рачу́, -ро́ціш, -ро́ціць; -ро́чаны; *зак., што.* Зрабіць карацейшым. *П. паліто.* ‖ *наз.* **пакарачэ́нне**, -я, *н.*

**ПАКАРА́ЦЦА** *гл.* пакарыцца.

**ПАКАРА́ЦЬ**[1] *гл.* караць.

**ПАКАРА́ЦЬ**[2] *гл.* пакарыць.

**ПАКАРМІ́ЦЦА** *гл.* карміцца.

**ПАКАРМІ́ЦЬ** *гл.* карміць.

**ПАКАРЫСТА́ЦЦА** *гл.* карыстацца.

**ПАКАРЫ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Той, хто пакарыў або пакарае каго-, што-н. *Пакарыцелі цаліны. Чалавек — п. космасу.* ‖ *ж.* **пакары́целька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек.

**ПАКАРЫ́ЦЦА**, -кару́ся, -ко́рышся, -ко́рыцца; *зак.* **1.** *каму-чаму.* Падпарадкавацца чыёй-н. уладзе, волі. *Не пакорымся нахабным заваёўнікам.* **2.** *чаму.* Змірыцца з чым-н., адмовіўшыся ад супраціўлення чаму-н. *П. лёсу.* ‖ *незак.* **пакара́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАКАРЫ́ЦЬ**, -кару́, -ко́рыш, -ко́рыць; -ко́раны; *зак., каго-што.* **1.** Падпарадкаваць сваёй уладзе, заваяваць. *П. крэпасць. Чалавек пакарыў космас.* **2.** *перан.* Выклікаць у каго-н. сімпатыю, давер да сябе. *П. дзявочае сэрца.* ‖ *незак.* **пакара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пакарэ́нне**, -я, *н.*

**ПАКАСІ́ЦЦА** *гл.* касіцца.

**ПАКАСІ́ЦЬ** *гл.* касіць[2].

**ПАКА́ТАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* пакаты. **2.** Пакатая паверхня. *П. узгорка.*

**ПАКАТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Правесці некаторы час, катаючыся на чым-н. *П. на веласіпедзе.*

**ПАКАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго.* Павазіць, пракаціць крыху. *П. дзяцей на санках.*

**ПАКА́ТЫ**, -ая, -ае. Нахілены, без крутасці. *П. дах.* ‖ *наз.* **пака́тасць**, -і, *ж.*

**ПАКАЎЗНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* Тое, што і *паслізнуцца.*

**ПАКАХА́ЦЦА**, -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* (разм.). Пакахаць адзін аднаго.

**ПАКАХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго.* Адчуць каханне да каго-, чаго-н., палюбіць. *П. дзяўчыну.*

**ПАКА́ЦІСТЫ**, -ая, -ае. З паступовым паніжэннем, адхонны, пакаты. *П. бераг.* ‖ *наз.* **пака́цістасць**, -і, *ж.*

**ПАКАЦІ́ЦЦА**, -качу́ся, -ко́цішся, -ко́ціцца; *зак.* **1.** Пачаць каціцца. *Мяч пакаціўся па падлозе.* **2.** На спуску: упасці, круцячыся; наогул упасці рэзка, адразу (разм.). *Чалавек аступіўся і пакаціўся з абрыву.* ◊ **Пакаціцца са (ад) смеху** (разм.) — гучна і нястрымна рассмяяцца.

**ПАКАЦІ́ЦЬ**, -качу́, -ко́ціш, -ко́ціць; -ко́чаны; *зак.* **1.** *што.* Прымусіць каціцца. *П. бервяно.* **2.** Хутка паехаць, адправіцца куды-н. (разм.). *Машына пакаціла ў бок горада. Яны пакацілі на поўдзень.* **3.** *каго-што.* Паваліць, прымусіць упасці (разм.). *Ён пакаціў мяне на зямлю.*

**ПАКАЧА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Правесці час, качаючыся. *П. на траве.*

**ПАКАЧА́ЦЬ** *гл.* качаць.

**ПАКА́ШЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Злёгку, з перапынкамі кашляць. *Чалавек курыў і пакашліваў.* ‖ *наз.* **пака́шліванне**, -я, *н.*

**ПАКА́ШЛЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; *зак.* Кашлянуць некалькі разоў; правесці некаторы час, кашляючы.

**ПАКАШТАВА́ЦЬ** *гл.* каштаваць[2].

**ПАКАЯ́ННЕ**, -я, *н.* (кніжн.). Добраахвотнае прызнанне ў зробленай правіннасці, памылцы. ◊ **Адпусціць душу на пакаянне** (разм., жарт.) — пашкадаваць, злітавацца.

**ПАКАЯ́ННЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які ўтрымлівае ў сабе пакаянне; вінаваты. *П. выгляд. Пакаяннае пісьмо. Напісаць пакаянную* (наз.). ◊ **Пакаяннай галавы меч не сячэ** (прыказка) — таму, хто прызнаў сваю віну, трэба дараваць.

**ПАКА́ЯЦЦА** *гл.* каяцца.

**ПАКВА́ПІЦЦА** *гл.* квапіцца.

**ПАКГА́ЎЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Склад для захоўвання грузаў. *Чыгуначны п.* ‖ *прым.* **пакга́ўзны**, -ая, -ае.

**ПАКЕ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., з каго-чаго* (разм.). Кпіць, дабрадушна насміхацца. *П. з цыбатага хлопца.*

**ПАКЕ́Т**, -а, *М* -кéце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Папяровы скрутак з чым-н. *Завінуць рэчы ў п.* **2.** Папяровы, поліэтыленавы і пад. мяшочак для прадуктаў. **3.** Канверт з пісьмом афіцыйнага прызначэння. *Сакрэтны п.* **4.** У некаторых спалучэннях: камплект дакументаў, афіцыйных папер. *П. ідэй. П. акцый* (доля акцыянера ў акцыянерным таварыстве; спец.). **5.** Штабель, стос грузаў, змешчаных на паддон (спец.). *Цэгла ў пакетах.* ○ **Індывідуальны (перавязачны) пакет** — спецыяльна ўпакаваная гатовая павязка для накладання на рану пры аказанні першай медыцынскай дапамогі. ‖ *памянш.* **паке́цік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **паке́тны**, -ая, -ае (да 1—3 і 5 знач.). *Пакетныя перавозкі грузаў* (на паддонах; спец.).

**ПАКЕТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Упакаваць (упакоўваць), скласці (складваць) у пакет (у 5 знач.), стос, у штабель. *П. цэглу.* ‖ *наз.* **пакетава́нне**, -я, *н.*

**ПАКІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* Кіўнуць некалькі разоў. *П. галавой.*

**ПАКІ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Кінуць (многа, многае) як папала. *П. рэчы на воз.* **2.** Пакінуць (многае, многіх). *Сяляне пакідалі свае хаты і падаліся далей ад фронту.*

‖ *незак.* **пакіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—7 знач.).

**ПАКІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -кі́нь; -нуты; *зак.* **1.** Адправіўшыся, не ўзяць з сабой каго-, што-н. (наўмысна або забыўшыся). *П. запісную кніжку дома. П. дзяцей у вёсцы. П. рэчы ў машыне. П. пра сябе добрую памяць* (перан.). *П. след у навуцы* (перан.). **2.** *што.* Захаваць, прыберагчы. *П. агурок на насенне. П. за сабой права зрабіць што-н. П. газету для сяброўкі.* **3.** *каго-што.* Захаваць у якім-н. становішчы, стане. *П. браму адчыненай. П. закон у сіле. П. каго-н. у разгубленасці. П. пытанне адкрытым* (не вырашыць). *Пакінь мяне ў спакоі* (не дакучай мне). *П. вучня на другі год* (не перавесці ў наступны клас). *П. у дурнях* (перан.: падмануць, паставіць у няёмкае становішча). **4.** *што.* Перадаць каму-н., даць у чыё-н. карыстанне. *П. спадчыну.* **5.** *каго-што.* Прымусіць, прапанаваць застацца ці знаходзіцца дзе-н. *П. госця начаваць.* **6.** *каго-што.* Пайсці ад каго-, чаго-н., не маючы больш справы з кім-, чым-н. *П. сям'ю. Сілы пакінулі мяне. Ён не пакінуў таварыша ў бядзе. П. ззаду каго-н.* (апярэдзіць у спаборніцтве). **7.** *каго-што* і *без дап.* Не даць чаго-н. *П. без абеду. П. ліст без адказу.* **8.** *што.* Спыніць, перастаць чым-н. займацца. *П. непатрэбныя размовы. Пакінь кпіць!*

**ПАКІТАВА́ЦЬ** *гл.* кітаваць.

**ПАКЛАДА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (разм.). Тое, што і *кастрат.*

**ПАКЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго.* Тое, што і *кастрыраваць.* ‖ *зак.* **вы́пакладаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *наз.* **паклада́нне**, -я, *н.*

**ПАКЛА́ДЫ**, -аў, *адз.* пакла́д, -у, *М* -дзе, *м.* (спец.). Тое, што і *залежы* (у 1 знач.). *П. калійнай солі.*

**ПАКЛА́ЖА**, -ы, *ж.* Пакладзеныя для перавозкі рэчы, груз, багаж. *Воз з паклажай.*

**ПАКЛАНІ́ЦЦА** *гл.* кланяцца.

**ПАКЛАНЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак., каму-чаму* (высок.). Адносіцца да каго-, чаго-н. з глыбокай пашанай, павагай. *П. таленту пісьменніка.* ‖ *наз.* **пакланéнне**, -я, *н.*

**ПАКЛАПАТА́ЦЬ** *гл.* клапатаць.

**ПАКЛАПАЦІ́ЦЦА** *гл.* клапаціцца.

**ПАКЛА́СЦІ** *гл.* класці.

**ПАКЛА́СЦІСЯ** *гл.* класціся.

**ПАКЛЁП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ілжывае абвінавачанне. *Узвесці п. на каго-н.*

**ПАКЛЁПНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто паклёпнічае на каго-, што-н. ‖ *ж.* **паклёпніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАКЛЁПНІЦКІ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да паклёпу, які змяшчае паклёп. *Паклёпніцкія прыёмы. Паклёпніцкая заява.*

**ПАКЛЁПНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., на каго-што.* Распаўсюджваць пра каго-, што-н. заведама лжывыя чуткі. ‖ *зак.* **напаклёпнічаць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **паклёпніцтва**, -а, *н.*

**ПАКЛІ́КАЦЬ** *гл.* клікаць.

**ПАКЛО́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Нахіленне галавы або верхняй часткі тулава ў знак прывітання, удзячнасці, пакорнасці і пад. *Нізкі п. Зямны п.* (да зямлі). *Адбіваць паклоны* (кланяцца). *Біць паклоны* (кланяцца ў час малітвы). **2.** *перан.* Пажаданне дабра, шчасця, прывітанне. *Паслаць, перадаць п. каму-н.* ◊ **Ісці з паклонам** *да каго* (разм.) — звяртацца з просьбай аб дапамозе, садзейнічанні да каго-н.

**ПАКЛО́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто з захапленнем пакланяецца каму-, чаму-н.; прыхільнік. *П. мастацтва. П. чыйго-н. таленту.* **2.** Закаханы ў каго-н. чалавек. *У яе было многа паклоннікаў.* ‖ *ж.* **пакло́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАКЛЯВА́ЦЬ**[1], -люю́, -люе́ш, -люе́; -лю́й; -ляв́аны; *зак., што.* **1.** Скляваць усё. *Птушкі паклявалі ўвесь корм.* **2.** Скляваць крыху. *Грыб крыху пакляваны.* **3.** Правесці некаторы час, клюючы.

**ПАКЛЯВА́ЦЬ**[2], -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й, -ляв́аны; *незак., што.* Абтыкаць пазы, дзіркі пакуллем.

**ПАКЛЯСЦІ́СЯ** *гл.* клясціся.

**ПАКО́ВАЧНЫ** *гл.* пакоўка[2].

**ПАКО́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Асобнае памяшканне для жылля ў кватэры. *Ізаляваны п.* **2.** *мн.* Раскошныя жылыя памяшканні ў царскім палацы. ○ **Прыёмны пакой** — памяшканне ў бальніцы для прыёму хворых і аказання ім медыцынскай дапамогі. ‖ *прым.* **пакаёвы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПАКО́ЛВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Зрэдку злёгку калоць. *У грудзях паколвае* (безас.).

**ПАКО́ЛЬКІ**, *злуч.* Таму што, так як. *П. ты там сёння будзеш, то я туды не пайду.*

**ПАКО́РА**, -ы, *ж.* **1.** Поўнае падпарадкаванне, пакорнасць. *Хрысціянская п.* **2.** Паслушэнства, пакорлівае прыняцце лёсу. *Прыняць патрабаванні з пакораю.*

**ПАКО́РЛІВЫ**, -ая, -ае. Паслухмяны, падатлівы; які выражае пакору. *П. характар. П. тон.* ‖ *наз.* **пако́рлівасць**, -і, *ж.*

**ПАКО́С**, -у, *м.* **1.** Месца касьбы. *Лясны п.* **2.** Касьба або час касьбы. *Пачынаецца п.* **3.** *мн.* -ы, -аў. Тое, што і *пракос.* ‖ *прым.* **пако́сны**, -ая, -ае.

**ПАКО́СТ**, -у, *М* -сце, *м.* Спецыяльна апрацаваны алей або тлушч, што прымяняецца для прыгатавання фарбаў, лакаў, кіту і пад.

**ПАКО́ЎЗАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Правесці некаторы час, коўзаючыся. *П. на лёдзе.*

**ПАКО́ЎКА**[1] *гл.* пакаваць.

**ПАКО́ЎКА**[2], -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ко́вак, *ж.* (спец.). Загатоўка, апрацаваны каваннем або штампаваннем кавалак металу. ‖ *прым.* **пако́вачны**, -ая, -ае.

**ПАКО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Ёмісты, здольны многа змясціць чаго-н. *П. куфар.* ‖ *наз.* **пако́ўнасць**, -і, *ж.*

**ПАКО́ША**, -ы, *мн.* -ы, -ко́ш *і* -аў, *ж.* Скошаная сенажаць. ‖ *прым.* **пако́шавы**, -ая, -ае.

**ПАКРА́ЖА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́ж, *ж.* **1.** *гл.* красці. **2.** Украдзеная рэч. *Адшукаць пакражу.*

**ПАКРА́ПАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *зак.* Выпасці (пра дробны дождж). *Дождж пакрапаў і перастаў.*

**ПАКРА́ПВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* Злёгку, з перапынкамі крапаць (пра дождж). *Стаў п. дождж.*

**ПАКРАПІ́ЦЬ** *гл.* крапіць.

**ПАКРАСАВА́ЦЦА** *гл.* красавацца.

**ПАКРА́СЦІ**, -ра́ду, -ра́дзеш, -ра́дзе; -ра́ў, -ра́ла; -ра́дзены; *зак., што.* Украсці ўсё, многае. *Многа рэчаў пакралі.*

**ПАКРА́ТАЦЦА** *гл.* кратацца.

**ПАКРА́ТАЦЬ** *гл.* кратаць.

**ПАКРУГЛЕ́ЦЬ** *гл.* круглець.

**ПАКРУЧА́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае многа крутых звілін. *Пакручастая рака.* **2.** Які звіваецца, не прамы. *П. плюшч.* ‖ *наз.* **пакруча́стасць**, -і, *ж.*

**ПАКРЫВА́ЦЦА** *гл.* пакрыцца.

**ПАКРЫВІ́ЦЦА** *гл.* крывіцца.

**ПАКРЫВІ́ЦЬ** *гл.* крывіць.

**ПАКРЫ́КВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Злёгку час ад часу крычаць (у 1 і 3 знач.). *Недзе ў гушчары пакрыкваў драч. Фурманы пакрыквалі на коней.*

**ПАКРЫСЕ́**, *прысл.* **1.** Патроху, невялікімі долямі. *П. ўсяго пакаштаваць.* **2.** Паступова, не адразу. *Рабіць гэта можна п.*

**ПАКРЫТЫКАВА́ЦЬ**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; *зак., каго-што.* Выказаць крытычныя заўвагі пра каго-, што-н. *П. каго-н. за недахопы.*

**ПАКРЫ́ЎДЖАНЫ**, -ая, -ае. Які выражае пачуццё крыўды. *П. тон. П. позірк.*

**ПАКРЫ́ЎДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак., на каго-што.* Адчуць крыўду, абразіцца. *П. за заўвагу.*

**ПАКРЫ́ЎДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што.* **1.** Прычыніць крыўду каму-н. *П. выказваннем. Мухі не пакрыўдзіць* (перан.: пра добрага, спакойнага чалавека). **2.** Надзяліць чым-н. у недастатковай ступені, даць менш, чым патрэбна. *Прырода не пакрыўдзіла гэтага чалавека талентам. Пакрыўджаны богам* (пра няўдачлівага, абмежаванага розумам чалавека; разм.).

**ПАКРЫ́ЦЦА**, -ры́юся, -ры́ешся, -ры́ецца; *зак.* Запоўніцца, усеяцца чым-н. на паверхні. *Твар пакрыўся чырванню. Трава пакрылася расой.* ‖ *незак.* **пакрыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАКРЫ́ЦЬ**, -ры́ю, -ры́еш, -ры́е; -ры́ты; *зак.* **1.** *гл.* крыць. **2.** *каго-што.* Накласці, накласці зверху на каго-, што-н. *П. сцены слоем фарбы.* **3.** *каго-што.* Запоўніць, усеяць чым-н. на паверхні. *Хмары пакрылі неба. Цела пакрыта высыпкай.* **4.** *што.* Пра гукі: заглушыць, зрабіць нячутным. *Гром апладысментаў пакрыў апошнія словы прамоўцы.* **5.** *што.* Кампенсаваць, замяніць чым-н. *П. растрату. П. выдаткі.* **6.** *каго-што.* Дапамагчы ўтаіць, схаваць, не выдаўшы чый-н. учынак. *П. чыю-н. віну.* **7.** *што.* Пераадолець перамяшчэннем. *Лыжнік пакрыў двухкіламетровую дыстанцыю за 10 хвілін.* **8.** *што.* У картачнай гульні: паклаўшы вышэйшую карту, вывесці з гульні карту партнёра. *П. валета дамай.* **9.** *каго.* Апладніць (пра жывёл; спец.). ‖ *незак.* **пакрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пакрыццё**, -я́, *н.* (да 2, 3, 5—9 знач.).

**ПАКРЫ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Чахол з тоўстай гумы, які нацягваецца на камеру веласіпеда, аўтамашыны і пад., а таксама скураны чахол, які нацягваецца на гумавую камеру мяча. *Гумавая п.* ‖ *прым.* **пакры́шачны**, -ая, -ае.

**ПАКРЫШЫ́ЦЦА** *гл.* крышыцца.

**ПАКРЫШЫ́ЦЬ**, -рышý, -ры́шыш, -ры́шыць; -ры́шаны; *зак., што* і *чаго.* **1.** Трохі раскрышыць. *П. птушкам хлеба.* **2.** Нарэзаць дробнымі кавалачкамі. *П. на скрылікі бульбу.*

**ПАКТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (афіц.). Міжнародны дагавор. *П. аб ненападзенні.*

**ПАКУДЛА́ЦІЦЦА** *гл.* кудлаціцца.

**ПАКУДЛА́ЦІЦЬ** *гл.* кудлаціць.

**ПА́КУЛЛЕ**, -я, *н.* Грубае валакно, якое адходзіць пры апрацоўцы лёну, канапель. *Заканапаціць шчыліны пакуллем.* ‖ *прым.* **па́куллевы**, -ая, -ае.

**ПАКУ́ЛЬ.** **1.** *прысл.* На працягу некаторага часу. *Пастой п. тут. П. нічога не вядома.* **2.** *злуч.* На працягу таго часу як. *П. дзяўчына вучыцца, трэба ёй дапамагаць.* **3.** *злуч.* Да той пары як. *Не пайду, п. не скончу работы.* ◊ **Пакуль што** (разм.) — пакуль (у 1 знач.), незалежна ад таго, што можа здарыцца потым. *Пакуль што мы тут усім задаволены.*

**ПАКУМІ́ЦЦА** *гл.* куміцца.

**ПАКУ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Загорнутыя ў што-н. рэчы. *П. кніг.*

**ПАКУПА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Пабыць у вадзе, купаючыся. *П. ў рацэ.*

**ПАКУ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* Купленая рэч. *Паказаць новую пакупку.*

**ПАКУПНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Чалавек, які купляе што-н. ‖ *ж.* **пакупні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц. ‖ *прым.* **пакупні́цкі**, -ая, -ае.

**ПАКУПНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які звязаны з магчымасцямі купляць. *Пакупная здольнасць насельніцтва.* **2.** Такі, як пры куплі (пра цану). *Грошы, заплачаныя за будынак, залічваюцца ў кошт пакупной цаны.*

**ПАКУ́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Курыць, не спяшаючыся, час ад часу, пакрыху. *П. на прызбе.*

**ПАКУРЫ́ЦЬ**, -курý, -ку́рыш, -ку́рыць; *зак.* **1.** Правесці некаторы час, курачы. **2.** *што.* Скурыць усё, многае. *П. усе папяросы.*

**ПАКУСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* **1.** Укусіць у многіх месцах ці некалькі разоў. **2.** Скусаць. *Хлопчыка пакусалі пчолы.*

**ПАКУ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Кусаць мала, калі-нікалі. *Нервова п. цыгарэту.*

**ПАКУ́ТА**, *ДМ* -ку́це, *мн.* -ы, -ку́т, *ж.* Вялікая фізічная або душэўная мука. *Вочы, поўныя пакуты. Душэўныя пакуты.*

**ПАКУ́ТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; *незак.* **1.** Цярпець пакуты. *П. ад зубнога болю.* **2.** Пераносіць якія-н. нягоды, цяжкасці. *П. ад беззямелля.*

**ПАКУ́ТЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прычыняе пакуты, мукі. *П. кашаль. Пакутлівае пытанне.* **2.** Які выяўляе пакуту, муку; выкліканы пакутай, мукай. *П. твар. Пакутлівыя слёзы.* ‖ *наз.* **паку́тлівасць**, -і, *ж.*

**ПАКУ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які перанёс або пераносіць пакуты. *Пакутнікі канцлагераў.* ‖ *ж.* **паку́тніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **паку́тніцкі**, -ая, -ае.

**ПАКУ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Тое, што і *пакутлівы* (у 1 знач.). *П. боль.* **2.** Які пераносіць, церпіць пакуты. *П. чалавек.*

**ПАЛАВЕ́ЦКІ** *гл.* полаўцы.

**ПАЛАВЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *незак.* **1.** Набываць палавы колер. *Палавее ячмень.* **2.** Вызначацца сваім бледна-жоўтым колерам. *Неба палавела.* ‖ *зак.* **запалаве́ць**, -е́е.

**ПАЛАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Вузкі доўгі дыванок з грубай тканіны, які рассцілаецца на падлозе.

**ПАЛАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* **1.** Адна з дзвюх роўных частак, якія разам складаюць цэлае. *П. памідора. П. справы. П. зімы прайшла. Першая п. гульні* (у спорце). **2.** Сярэдзіна якой-н. адлегласці, прамежку часу. *Праехаць палавіну дарогі. П. восьмай вечара.* **3.** Асобная частка жылога памяшкання (уст.). *Парадная п. дома.* **4.** Пра жонку (разм., жарт.). *Мая п. ў ад'ездзе.* ‖ *памянш.* **палаві́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **палаві́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПАЛАВІ́НЧАТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які складаецца з дзвюх частак, палавін (спец.). *Палавінчатая цэгла* (бітая). **2.** *перан.* Пазбаўлены цэласнасці, паслядоўнасці, які не даводзіць чаго-н. да канца. *Палавінчатыя меры. Палавінчатае рашэнне.* ‖ *наз.* **палаві́нчатасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПАЛАВЫ́**[1] *гл.* пол[2].

**ПАЛАВЫ́**[2], -а́я, -о́е. Які мае бледна-жоўты колер. *Збажына ўжо стала палавой.*

**ПАЛАГАДНЕ́ЦЬ** *гл.* лагаднець.

**ПАЛА́ДЗІЦЬ**, -ла́джу, -ла́дзіш, -ла́дзіць; *зак., з кім.* Прыйсці да ладу, наладзіць узаемаразуменне, магчымасць сумеснага жыцця, дзейнасці. *П. з суседзямі.*

**ПАЛАЖЫ́ЦЬ** *гл.* класці.

**ПАЛАЖЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Звод правіл, законаў, якія датычацца чаго-н. *П. аб выбарах.* **2.** Навуковае сцверджанне, сфармуляваная думка. *Асноўныя палажэнні кнігі.*

**ПАЛАМА́ЦЦА** *гл.* ламацца.

**ПАЛАМА́ЦЬ** *гл.* ламаць.

**ПАЛАНІЗАВА́ЦЬ**, -зýю, -зýеш, -зýе; -зýй; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Зрабіць (рабіць) польскім па мове, звычаях. ‖ *наз.* **паланіза́цыя**, -і, *ж.*

**ПАЛАНІ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Слова або выраз, запазычаныя з польскай мовы, напр.: *айчына, моц, сукенка.*

**ПАЛАНІ́ЦЬ**, -ланю́, -ло́ніш, -ло́ніць; -ланёны; *зак.* і *незак.* **1.** *каго-што.* Узяць (браць) у палон. *П. варожую армію.* **2.** *перан., каго (што).* Зачараваць (зачароўваць), захапіць (захапляць). *П. чароўным голасам.* ‖ *наз.* **палане́нне**, -я, *н.*

**ПАЛАНКІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* На Усходзе: умацаванае на доўгіх шастах крытае крэсла або ложа, якое пераносіцца насільшчыкамі.

**ПАЛАНЦЫ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Футравая або аксамітавая жаночая наплечная накідка (шаль), а таксама вялікая і шырокая хустка. *Сабаліны п.* ‖ *прым.* **паланцы́навы**, -ая, -ае.

**ПАЛАНЭ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Польскі ўрачысты танец-шэсце, а таксама музыка ў яго рытме.

**ПАЛА́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Двухбаковы дыван без ворсу. ‖ *прым.* **пала́сны**, -ая, -ае.

**ПАЛАСА́**, -ы́, *мн.* пало́сы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) паласы́, -ло́с, *ж.* **1.** Доўгая роўная лінія (на малюнку, чарцяжы), след на якой-н. паверхні ад чаго-н.; доўгая вузкая частка якой-н. прасторы. *Чырвоныя і сінія палосы на хустцы. П. на целе ад удару. П.*

*дыму.* **2.** Працяглы ўчастак чаго-н., пояс. *Глiнiстая п. Прыфрантавая п.* **3.** Невялікі вузкі ўчастак ворнай зямлі сялянскага надзелу (гіст.). **4.** Старонка ў наборы, у друкаваным выданні (спец.). *Газетная п.* **5.** *перан.* Прамежак часу, перыяд. *Самая шчаслівая п. яго жыцця.* **6.** *перан.* Настрой, стан. *Змрочная п. найшла на яго.* ‖ *памянш.* **пало́ска**, -і, *ДМ* -ло́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* (да 1—3 знач.). *Тканіна ў палоску.* ‖ *прым.* **пало́сны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.) *і* **паласны́**, -а́я, -óе (да 1 і 4 знач.; спец.).

**ПАЛА́САВАЦЦА** *гл.* ласавацца.

**ПАЛА́САВАЦЬ** *гл.* ласаваць.

**ПАЛАСАВА́ЦЬ**, -сую, -суеш, -суе; -суй; *незак.* **1.** *што.* Рэзаць на палосы (спец.). *П. жалеза.* **2.** *каго-што.* Біць, пакідаючы рубцы, палосы на целе (разм.). ‖ *зак.* **спаласава́ць**, -сую, -суеш, -суе; -суй; -сава́ны (да 2 знач.) *і* **распаласава́ць**, -сую, -суеш, -суе; -суй; -сава́ны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **паласава́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПАЛАСАВЫ́**, -а́я, -óе (спец.). Які вырабляецца ў выглядзе палос ці служыць для вырабу іх. *Паласавое жалеза. П. стан.*

**ПАЛАСА́ТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты паласамі; з афарбоўкай у палоску. *Паласатая тканіна. Паласатыя шпалеры.* ‖ *наз.* **паласа́тасць**, -і, *ж.*

**ПАЛАСКА́ЛЬНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Пасудзіна для мыцця кубкаў, шклянак і пад.

**ПАЛАСКА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* паласкаць. **2.** Лекавая вадкасць, якой палошчуць горла, рот. *Цёплае п.*

**ПАЛАСКА́ЦЦА**, -лашчу́ся, -ло́шчашся, -ло́шчацца; -лашчы́ся; *незак.* **1.** Плюхацца ў вадзе, купаючыся. *Дзеці палошчуцца ў возеры.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Трапятацца на ветры. *Палошчуцца сцягі.*

**ПАЛАСКА́ЦЬ**, -лашчу́, -ло́шчаш, -ло́шча; -лашчы́; -ласка́ны; *незак., што.* **1.** Прамываць пасля мыцця, апускаючы ў чыстую ваду. *П. бялізну.* **2.** Прамываць для ачысткі, дэзынфекцыі або з лячэбнай мэтай. *П. рот пасля яды. П. горла.* ‖ *зак.* **вы́паласкаць**, -лашчу, -лашчаш, -лашча; -лашчы; -ласканы (да 1 знач.), **адпаласка́ць**, -лашчу́, -ло́шчаш, -ло́шча; -лашчы́; -ласка́ны (да 1 знач.) *і* **прапаласка́ць**, -лашчу́, -ло́шчаш, -ло́шча; -лашчы́; -ласка́ны. ‖ *наз.* **паласка́нне**, -я, *н.*

**ПАЛАСНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., каго-што* (разм.). Ударыць чым-н. доўгім, вузкім, што звычайна пакідае след у выглядзе вузкай паласы. *П. нагайкай па спіне. П. нажом. П. з аўтамата* (перан.). *Яе словы паласнулі па сэрцы* (перан.).

**ПАЛА́ТА**[1], -ы, *ДМ* -ла́це, *мн.* -ы, -ла́т, *ж.* **1.** Вялікі, пышна аздоблены будынак, памяшканне (уст.). *Княжацкія палаты.* **2.** Асобны пакой у бальніцы, лячэбнай установе. *Шпітальная п.* ‖ *прым.* **пала́тны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПАЛА́ТА**[2], -ы, *ДМ* -ла́це, *мн.* -ы, -ла́т, *ж.* **1.** Назва прадстаўнічых устаноў у некаторых краінах. *Народная п. Ніжняя п.* (першая заканадаўчая інстанцыя). *Верхняя п.* (вышэйшая заканадаўчая інстанцыя). *П. абшчын і п. лордаў* (ніжняя і верхняя палаты англійскага парламента). **2.** Назва некаторых дзяржаўных устаноў. *Кніжная п. П. мер і вагі.*

**ПАЛА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Часовае памяшканне з нацягнутай на каркас тканіны, скуры. *Раскінуць палаткі.* **2.** Лёгкая пабудова з прылаўкам для дробнага гандлю. *Хлебная п.* ‖ *прым.* **пала́тачны**, -ая, -ае *і* **пала́ткавы**, -ая, -ае. *Палатачны гарадок* (часовы пасёлак з палатак).

**ПАЛА́ТКІ**, -так. Насціл з дошак паміж печчу і сцяной у сялянскай хаце, які рабіўся на высокім узроўні ад падлогі.

**ПАЛАТНО́**, -а́, *мн.* -ло́тны, -аў, -лацён *і* -ло́цен, *н.* **1.** Гладкая льняная тканіна асобага перапляцення. *Кужэльнае, зрэбнае п. Віскознае п.* (віскозная тканіна такога перапляцення). *Збялець як п.* (стаць вельмі бледным). **2.** Паласа, стужка ў механізме. *П. транспарцёра.* **3.** Карціна (звычайна на матэрыі асобага перапляцення). *Выстаўка лепшых палотнаў беларускіх мастакоў. Шырокае гістарычнае п.* (перан.: пра літаратурны твор, які апісвае гістарычныя падзеі). **4.** Дарожны насып, аснова для верхняга пакрыцця дарогі (спец.). *П. чыгункі.* **5.** Плоская тонкая частка чаго-н. (спец.). *П. касы. П. пілы.* ‖ *прым.* **палатня́ны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Палатняная кашуля* (з палатна). *Палатняная вытворчасць. Палатнянае перапляценне* (з роўным чаргаваннем нітак асновы і ўтку).

**ПАЛАЎЧА́НКА** *гл.* полаўцы.

**ПАЛАХЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які лёгка палохаецца, усяго баіцца; які выражае спалох. *П. позірк. Палахліва* (прысл.) *азірацца. Палахлівыя цені* (перан.; мітуслівыя, дрыготкія). ‖ *наз.* **палахлі́васць**, -і, *ж.*

**ПАЛА́Ц**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вялікі і пышны будынак, які звычайна выдзяляецца сваёй архітэктурай. **2.** Такі будынак, які з'яўляецца месцазнаходжаннем манарха і яго сям'і. *Царскі п.* **3.** з *Р.* У складзе назваў некаторых будынкаў шырокага грамадскага прызначэння. *П. піянераў. П. спорту.* ‖ *прым.* **пала́цавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПАЛАЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Работнік, які націрае паркетныя падлогі. **2.** Бытавая машына для націрання паркетнай падлогі. *Электрычны п.* ‖ *прым.* **палацёрскі**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **палацёрны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПАЛАЦЁРНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* палацёр. **2.** Які мае адносіны да працы палацёра, да націрання падлогі. *Палацёрныя работы. Палацёрная шчотка.*

**ПАЛА́ЦІ**, -яў (уст.). Тое, што і *палаткі.*

**ПАЛА́ЦІЦЬ** *гл.* лаціць.

**ПАЛА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Гарэць яркім полымем. *Палаюць дровы ў печы.* **2.** *перан.* Станавіцца чырвоным, гарачым ад прыліву крыві. *Твар палаў.* **3.** *перан., чым.* Быць ахопленым якім-н. пачуццём, быць узбуджаным. *П. каханнем да каго-н.*

**ПАЛА́ЦЬ**[2] *гл.* апалаць.

**ПА́ЛАЧКА** *гл.* палка.

**ПАЛАЧКАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які па форме нагадвае палачку, кароткую рыску. *Палачкападобныя бактэрыі.*

**ПА́ЛАЧНЫ** *гл.* палка.

**ПАЛА́Ш**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Халодная ручная зброя з доўгім прамым клінком. ‖ *прым.* **пала́шны**, -ая, -ае.

**ПАЛА́ЯЦЦА** *гл.* лаяцца.

**ПАЛЕА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да старажытных эпох, да глыбокай старажытнасці, напр.: *палеаазіяты, палеаазіяцкі;* 2) які мае адносіны да палеанталогіі, палеанталагічны, напр.: *палеабатаніка, палеазаалогія;* 3) які мае адносіны да вывучэння глыбокай старажытнасці, напр.: *палеапаталогія, палеарэнтгеналогія, палеафіталогія.*

**ПАЛЕАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Навука аб развіцці пісьменства і старажытных рукапісах, мэта якой вызначыць час і месца іх узнікнення паводле знешняга выгляду і пісьма. ‖ *прым.* **палеаграфі́чны**, -ая, -ае.

**ПАЛЕАЗА́ЎР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялізная выкапнёвая яшчарка.

**ПАЛЕАЗО́Й**, -зо́ю, *м.* (спец.). Самы старажытны этап фанеразойскай гісторыі Зямлі. ‖ *прым.* **палеазо́йскі**, -ая, -ае. ○ **Палеазойская эра** — эра геалагічнай гісторыі Зямлі, якая суадносіцца з існаваннем старажытнейшай групы адкладаў горных парод.

**ПАЛЕАЛІ́Т**, -у, *М* -лі́це, *м.* Ранні перыяд каменнага веку (да 10—11 тысячагоддзяў да н.э.). ‖ *прым.* **палеалі́тычны**, -ая, -ае.

**ПАЛЕАНТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб акамянелых выкапнёвых жывёлінах і раслінах. ‖ *прым.* **палеанталагі́чны**, -ая, -ае.

**ПАЛЕАНТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па палеанталогіі.

**ПА́ЛЕВЫ**[1], -ая, -ае. Бледна-жоўты з ружовым адценнем.

**ПА́ЛЕВЫ**[2] *гл.* паля.

**ПАЛЕ́ГЛЫ**, -ая, -ае. Які прыгнуўся сцяблом да зямлі (пераважна пра збожжавыя расліны). *Палеглая збажына.* ‖ *наз.* **пале́гласць**, -і, *ж.* (спец.). *П. жыта.*

**ПАЛЕ́ГЧЫ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ля́жа; -ля́жам, -ля́жаце, -ля́гуць; палёг, -лягла́ *і* -ле́гла, -лягло́ *і* -ле́гла; *зак.* **1.** Легчы (пра многіх). *Дзеці палеглі спаць.* **2.** (*1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв.*). Прыгнуцца сцяблом да зямлі (пра злакі). *Жыта палягло.* **3.** *перан.* Загінуць, быць забітым (пра многіх). *У тым баі палягло многа салдат.* ‖ *незак.* **паляга́ць**, -а́е (да 2 знач.; спец.); *наз.* **паляга́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.; спец.). *Паляганне пасеваў.*

**ПАЛЕ́ГЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць менш цяжкім, аблегчыць. *П. пераправу.* **2.** Змякчыць,

паслабіць. *П. боль.* || *незак.* **палягчáць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **палягчэ́нне**, -я, *н. і* **палёгка**, -і, *ДМ* -гцы, *ж.*

**ПАЛЁЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Трохі, час ад часу ляжаць. *П. на печы.*

**ПАЛЁЗЦІ**, -зу, -зеш, -зе; палёз, -зла; палёзь; *зак.* **1.** Пачаць лезці (у 1, 3 і 7 знач.). *П. на дрэва. Хлапчукі палезлі ў сад. П. біцца. П. ў кішэнь.* **2.** *(1 і 2 ас. не ўжыв.).* Пачаць выпадаць (пра валасы, поўсць). *Валасы ўжо палезлі.*

**ПАЛЕМІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; *незак., з кім-чым.* Весці палеміку. *П. з дакладчыкам.*

**ПАЛЕ́МІКА**, -і, *ДМ* -міцы, *ж.* Спрэчка пры абмеркаванні, высвятленні навуковых, літаратурных, палітычных пытанняў. *Вострая палітычная п.*

**ПАЛЕМІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які ўмее ці любіць палемізаваць. || *ж.* **палемі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПАЛЕМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да палемікі, уласцівы для палемікі. *П. тон.* **2.** Які заключае ў сабе палеміку. *Палемічная літаратура.* || *наз.* **палемі́чнасць**, -і, *ж.*

**ПАЛЕ́НА**, -а, *мн.* -ы, -лён, *н.* **1.** Кавалак распілаванага і рассечанага бервяна на паліва. *Асінавае п.* **2.** *перан.* Непаваротлівы, тупы чалавек (лаянк.). || *памянш.* **пале́нца**, -а, *мн.* -ы, -аў.

**ПАЛЕНАВА́ЦЦА** *гл.* ленавацца.

**ПАЛЕ́ННЕ**[1] *гл.* паліць[1].

**ПАЛЕ́ННЕ**[2], -я, *н., зб.* Палéны. *Злажыць п. пад навес.*

**ПАЛЕО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па палеаграфіі.

**ПАЛЕ́ПШАЦЬ** *гл.* лепшаць.

**ПАЛЕ́ПШЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шыцца; *зак.* Стаць лепшым. *Здароўе палепшылася. Надвор'е палепшылася.* || *незак.* **паляпша́цца**, -áецца.

**ПАЛЕ́ПШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., што.* Зрабіць лепшым. *П. якасць прадукцыі. П. настрой.* || *незак.* **паляпша́ць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **паляпшэ́нне**, -я, *н. і* **пале́пшанне**, -я, *н.*

**ПАЛЕ́ТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Участак поля, які выкарыстоўваецца пад пасевы. *Кукурузныя палеткі.* || *прым.* **пале́тачны**, -ая, -ае *і* **пале́ткавы**, -ая, -ае.

**ПА́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* **1.** Адна з пяці рухомых канцавых частак кісці рукі, ступні нагі (у чалавека) або лапы (у жывёлы). *Безымянны палец.* **2.** У машынах, механізмах і пад.: замацаваная дэталь у выглядзе акруглага стрыжня (спец.). *Поршневы п.* ◊ **праз пальцы глядзець** *на каго-што* (разм., неадабр.) — свядома не заўважаць каго-, што-н.; абыякава ставіцца да каго-, чаго-н. **Ведаць як свае пяць пальцаў** *каго-што* (разм.) — ведаць вельмі добра. **Пальцам паказваць** *на каго-што* (разм.) — указваць, звяртаць асобую ўвагу на каго-, што-н. || *памянш.* **па́льчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.). || *прым.* **па́льцавы**, -ая, -ае. *П. сустаў.*

**ПАЛЁГКА**, -і, *ДМ* -гцы, *мн.* -і, -гак, *ж.* **1.** *гл.* палегчыць. **2.** Стан лёгкасці, вызвалення ад чаго-н. *Адчуць палёгку.*

**ПАЛЁТ**, -у, *М* -лёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рух, перамяшчэнне па паветры. *П. ракеты. П. на Марс. П. думкі* (перан.). *Птушка высокага палёту* (перан.; пра чалавека, які займае важнае становішча; разм., іран.). || *прым.* **палётны**, -ая, -ае (спец.). *Палётная вага* (вага лятальнага апарата, гатовага да палёту).

**ПАЛЁЎКА**, -і, *ДМ* -лёўцы, *мн.* -і, -лёвак, *ж.* Жывёліна атрада грызуноў, падобная на мыш.

**ПАЛІ...** (*гл.* **полі...**). Першая састаўная частка складаных слоў, якая ўжыв. замест «полі...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *палітэхнікум, паліглот, паліклініка.*

**ПА́ЛІВА**, -а, *н.* Гаручае рэчыва, якое дае цяпло і з'яўляецца крыніцай атрымання энергіі. *Цвёрдае п.* (дровы, вугаль). *Вадкае п.* (нафта). || *прым.* **па́ліўны**, -ая, -ае. *Паліўныя рэсурсы.*

**ПАЛІ́ВА**, -ы, *ж.* (спец.). Шклопадобная маса, якой пакрываюць керамічныя вырабы. || *прым.* **палі́ўны**, -ая, -ае.

**ПАЛІВА́ЛЬНЫ** *гл.* паліць[2].

**ПАЛІВА́ННЕ** *і* **ПАЛІ́ЎКА** *гл.* паліць[2].

**ПАЛІВА́НЫ**, -ая, -ае. Пакрыта палівай. *П. збанок.*

**ПАЛІВА́ЦЬ** *гл.* паліць[2].

**ПАЛІВА́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (разм.). Тое, што і *лейка* (у 2 знач.).

**ПАЛІ́ВАЧНЫ** *гл.* паліць[2].

**ПАЛІГА́МІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Форма шлюбу ў некаторых плямён і народаў, пры якой мужчына можа мець некалькі жонак; мнагашлюбнасць. || *прым.* **паліга́мны**, -ая, -ае.

**ПАЛІГЛО́Т**, -а, *М* -лóце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які ведае многа моў. *Францыск Скарына быў паліглотам.*

**ПАЛІГО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікі спецыяльна абсталяваны ўчастак сушы або мора для выпрабавання розных відаў зброі, баявых вучэнняў. *Артылерыйскі п. Вучэбны п.* || *прым.* **паліго́нны**, -ая, -ае.

**ПАЛІГРАФІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па паліграфіі. || *ж.* **паліграфі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПАЛІГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Галіна тэхнікі, прамысловасць, якая занята друкаваннем кніг, газет і пад. || *прым.* **паліграфі́чны**, -ая, -ае.

**ПАЛІКЛІ́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *мн.* -і, -нік, *ж.* Медыцынская ўстанова з урачамі розных спецыяльнасцей, прызначаная для аказання насельніцтву ўсіх відаў нестацыянарнай медыцынскай дапамогі. *Раённая п. Дзіцячая п.* || *прым.* **паліклі́нічны**, -ая, -ае.

**ПАЛІМЕ́РЫ**, -аў, *адз.* палімéр, -а, *м.* Высокамалекулярныя хімічныя злучэнні, якія складаюцца з аднародных, што паўтараюцца, груп атамаў і шырока прымяняюцца ў тэхніцы. *Прыродныя п.* || *прым.* **паліме́рны**, -ая, -ае. *Палімерныя матэрыялы.*

**ПАЛІНЯ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які выцвіў, страціў свежасць фарбаў. *Палінялая хустка.*

**ПАЛІНЯ́ЦЬ** *гл.* ліняць.

**ПАЛІ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Марская жывёліна, якая не мяняе свайго месцазнаходжання. *Каралавы п.* **2.** Хваравітае ўтварэнне з эпітэлію слізістай абалонкі. *Паліпы ў носе.* || *прым.* **палі́пны**, -ая, -ае.

**ПАЛІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Націраючы, надаць люстрана-гладкі выгляд чаму-н. *П. мэблю. П. ногці.* || *зак.* **напаліравáць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны *і* **адпаліравáць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. || *наз.* **паліравáнне**, -я, *н. і* **паліро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.; прым.* **паліравáльны**, -ая, -ае *і* **паліро́вачны**, -ая, -ае.

**ПАЛІСА́НДР**, -у, *м.* Каштоўная цвёрдая драўніна некаторых трапічных дрэў. || *прым.* **паліса́ндравы**, -ая, -ае. *Палісандравае дрэва.*

**ПАЛІСМЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У Англіі, ЗША і некаторых іншых краінах: паліцэйскі.

**ПАЛІТ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову «палітычны», напр.: *палітаддзел, палітзаняткі, палітінфармацыя, палітэканомія.*

**ПАЛІТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая вывучае палітычную сістэму і палітычнае жыццё, праблемы ўнутранай палітыкі і міжнародных зносін. || *прым.* **паліталагі́чны**, -ая, -ае.

**ПАЛІТКАТАРЖА́НІН**, -а, *мн.* -жáне, -жáн, *м.* Рэвалюцыянер, які адбываў царскую катаргу ў передрэвалюцыйнай Расіі. || *ж.* **палітkatаржа́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ПАЛІТО́**, *нескл., н.* Верхняя вопратка, звычайна ніжэй каленаў. *Скуранное п. Мужчынскае п.* || *прым.* **паліто́вы**, -ая, -ае (спец.).

**ПАЛІТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па паліталогіі.

**ПАЛІ́ТРА**, -ы, *ж.* **1.** Дошчачка, на якой мастак змешвае фарбы. **2.** *перан.* Падбор фарбаў у карціне, колеравая гама. **3.** *перан.* Сукупнасць выяўленчых сродкаў мастака. *Багатая п. пісьменніка.*

**ПАЛІТРУ́К**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* Асоба ваеннапалітычнага саставу, якая кіравала палітычнай работай у падраздзяленнях вайсковых часцей Савецкай Арміі (да 1942 г.). *П. роты.*

**ПАЛІТУ́РА**, -ы, *ж.* Спіртавы лак, які выкарыстоўваецца для паліроўкі. || *прым.* **паліту́рны**, -ая, -ае.

**ПАЛІ́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Палітычны дзеяч, асоба, якая займаецца пытаннямі палітыкі; знаўца палітыкі. *Дальнабачны п.*

**ПАЛІ́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Дзейнасць органаў дзяржаўнай улады і дзяр-

жаўнага кіравання, якая адлюстроўвае грамадскі лад і эканамічную структуру краіны, а таксама дзейнасць грамадскіх класаў, партый і інш. класавых арганізацый, грамадскіх груповак, якая вызначаецца іх інтарэсамі і мэтамі. *Міжнародная п. П. мірнага суіснавання.* **2.** Падзеі і пытанні грамадскага, дзяржаўнага жыцця. *Цікавіцца палітыкай. Бягучая п.* **3.** Характар дзеянняў, накіраваных на дасягненне таго, што вызначае адносіны з людзьмі (разм.). *Хітрая п. ў вас, мы яе навылёт бачым.* ‖ *прым.* **палітычны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Палітычная актыўнасць мас. П. дзеяч. Палітычныя навукі. П. кругагляд.*

**ПАЛІТЫКА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (пагард.). Беспрынцыповы палітычны дзеяч, а таксама наогул спрытны і беспрынцыповы дзялок. ‖ *прым.* **палітыка́нскі**, -ая, -ае.

**ПАЛІТЫКА́НСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* (пагард.). Быць палітыканам. ‖ *наз.* **палітыка́нства**, -а, *н.*

**ПАЛІТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* палітыка. **2.** Дзяржаўна-прававы. *Палітычная арганізацыя грамадства. П. лад.* **3.** Тактычны і лоўкі, умелы ў абыходжанні, дыпламатычны (разм.). *П. чалавек.* ‖ *наз.* **палі́тычнасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**ПАЛІТЭКАНО́МІЯ**, -і, *ж.*; *гл.* эканомія. ‖ *прым.* **палітэканамі́чны**, -ая, -ае.

**ПАЛІТЭ́ХНІКУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сярэдняя політэхнічная навучальная ўстанова.

**ПАЛІ́ЎКА** *гл.* паліць[2].

**ПА́ЛІЎНЫ** *гл.* па́ліва.

**ПАЛІ́ЎНЫ** *гл.* палі́ва.

**ПАЛІЎНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які мае патрэбу ў паліўцы. *Паліўныя землі.* **2.** Заснаваны на штучным арашэнні. *Паліўное земляробства.*

**ПА́ЛІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ліц, *ж.* Старажытная зброя — цяжкая дубіна з патоўшчаным канцом.

**ПАЛІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -лі́ц, *ж.* **1.** Прымацаваная да сцяны або зробленая ў сцяне, шафе гарызантальная дошка для розных прадметаў (кніг, посуду і інш.). **2.** Месца для ляжання ў пасажырскім вагоне. *Верхняя п.* **3.** Тое, што і *адвал*[1] (у 3 знач.). ‖ *памянш.* **палі́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **палі́чны**, -ая, -ае.

**ПАЛІЦА́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (пагард.). У час Вялікай Айчыннай вайны ў акупіраваных раёнах: здраднік з мясцовага насельніцтва, які служыў у фашысцкай паліцыі.

**ПАЛІЦМА́ЙСТАР**, -тра, *мн.* -тры, -траў, *м.* Начальнік паліцыі ў буйных гарадах царскай Расіі, а таксама ў некаторых іншых дзяржавах. ‖ *прым.* **паліцма́йстарскі**, -ая, -ае.

**ПАЛІ́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., па́ліцца; *незак.* Пра печ: мець у сабе раскладзены агонь. *У кухні палілася пліта.*

**ПАЛІ́ЦЦА**[2], -льюся, -лье́шся, -лье́цца; -льёмся, -льяце́ся, -лью́цца *і* -лію́ся, -ліе́шся, -ліе́цца; -ліёмся, -ліяце́ся, -лію́цца; -ліўся, -ліла́ся, -ло́ся; -лі́ся; *зак.* **1.** *гл.* паліць[2]. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць ліцца. *З гор паліліся ручаі.*

**ПАЛІ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** У некаторых краінах: адміністратыўны орган аховы дзяржаўнай бяспекі і грамадскага парадку. **2.** *зб.* Асобы, якія служаць у гэтым органе. ‖ *прым.* **паліцэ́йскі**, -ая, -ае. *П. чын. Атрад паліцэйскіх* (наз.). *Паліцэйскія метады кіравання* (перан.; якія апіраюцца на насілле).

**ПАЛІ́ЦЬ**[1], палю́, па́ліш, па́ліць; па́лены; *незак.* **1.** *каго-што.* Знішчаць агнём. *П. паперу.* **2.** *што.* Прымушаць гарэць (для асвятлення, ацяплення). *П. дровы.* **3.** *што.* Запальваць (крыніцу асвятлення; разм.). *П. святло.* **4.** *у чым* і *што.* Распальваць і падтрымліваць агонь у печы; абаграваць памяшканне, раскладваючы агонь у печы, пліце і пад. *П. у печы* або *печ. П. лазню.* **5.** *што.* Апрацоўваць агнём, жарам, абпальваць (разм.). *П. цэглу.* **6.** *каго-што.* Дзеяннем чаго-н. гарачага, едкага ці халоднага выклікаць апёк, адчуванне апёку. *Сонца паліла нясцерпна. Мароз паліць твар.* **7.** *перан., каго-што.* Трывожыць, мучыць. *Смутак паліць душу.* ‖ *зак.* **спалі́ць**, -палю́, -па́ліш, -па́ліць; -па́лены (да 1 і 2 знач.); *наз.* **спале́нне**, -я, *н.* (паводле 1 знач.). ‖ *наз.* **пале́нне**, -я, *н.* (да 4 і 5 знач.).

**ПАЛІ́ЦЬ**[2], -лью́, -лье́ш, -лье́; -льём, -льяце́, -лью́ць *і* -лію́, -ліе́ш, -ліе́; -ліём, -ліяце́, -лію́ць; -лі́ў, -ліла́, -ло́; -лі́; -лі́ты; *зак.* **1.** Пачаць ліць[1]. *Паліў буйны дождж.* **2.** *каго-што.* Намачыць, арасіць. *П. грады. П. сябе вадой.* ‖ *незак.* **паліва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2 знач.). ‖ *звар.* **палі́цца**, -льюся, -лье́шся, -лье́цца; -льёмся, -льяце́ся, -лью́цца *і* -лію́ся, -ліе́шся, -ліе́цца; -ліёмся, -ліяце́ся, -лію́цца; -лі́ўся, -ліла́ся, -ло́ся (да 2 знач.); *незак.* **паліва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **паліва́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.), **палі́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 2 знач.). *Паліўка вуліц.* ‖ *прым.* **палі́вачны**, -ая, -ае (спец.) *і* **паліва́льны**, -ая, -ае (спец.). *Палівачныя машыны. Палівальная ўстаноўка.*

**ПАЛІЦЭ́ЙСКІ** *гл.* паліцыя.

**ПАЛІЧЫ́ЦЦА** *гл.* лічыцца.

**ПАЛІЧЫ́ЦЬ** *гл.* лічыць.

**ПАЛІШЫНЕ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Камічны персанаж французскага народнага лялечнага тэатра. *Сакрэт палішынеля* (сакрэт, які ўсім вядомы, уяўная тайна; жарт.).

**ПАЛІЯТЫ́Ў**, -ты́ву, *м.* (кніжн.). Лякарства або наогул сродак, які дае толькі часовую палёгку; паўмера. ‖ *прым.* **паліяты́ўны**, -ая, -ае.

**ПА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Зрэзаны тонкі ствол або тоўстая галіна без сукоў, што ўжыв. як апора пры хадзьбе і для іншых мэт, а таксама ўвогуле прадмет такой формы. *Ісці, абапіраючыся на палку. Сукаватая п. Лыжныя палкі. Палкі ў колы ўстаўляць* (перан.: свядома перашкаджаць якой-н. справе). ◊ **З-пад палкі** (разм.) — пад прымусам (рабіць што-н.). **Палка з двума канцамі** — пра тое, што можа скончыцца і добра і дрэнна. ‖ *памянш.* **па́лачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* *П.-выручалачка* (перан.: пра таго, хто заўсёды дапамагае, выручае; разм.). ○ **Палачка Коха** — туберкулёзная бацыла. ‖ *прым.* **па́лачны**, -ая, -ае. *Палачная дысцыпліна* (перан.: пра дысцыпліну, якая падтрымліваецца жорсткімі мерамі).

**ПАЛКАВО́ДЗЕЦ**, -дца, *мн.* -дцы, -дцаў, *м.* (высок.). Военачальнік, ваенны правадыр. *Славуты п.* ‖ *прым.* **палкаво́дчы**, -ая, -ае. *П. геній.*

**ПАЛКАВЫ́** *гл.* полк.

**ПА́ЛКІ**, -ая, -ае. **1.** Прасякнуты моцным пачуццём. *П. парыў. Палкая прамова.* **2.** Які вельмі захапляецца чым-н., цалкам аддаецца якой-н. справе. *П. агітатар. П. змагар за нацыянальнае адраджэнне.* **3.** Вельмі страсны, гарачы. *П. позірк.* ‖ *наз.* **па́лкасць**, -і, *ж.* (да 1 і 3 знач.).

**ПАЛКО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Афіцэрскае званне, чын, рангам вышэйшы за падпалкоўніка і ніжэйшы за генерал-маёра, а таксама асоба, якая мае гэта званне. ‖ *прым.* **палко́ўніцкі**, -ая, -ае.

**ПАЛО́ВА**, -ы, *ж.* (разм.). Тое, што і *палавіна* (у 1—3 знач.).

**ПАЛО́ЗЗЕ**, -я, *н., зб.* Палазы саней.

**ПАЛО́ЙКА**, -і, *ДМ* -ло́йцы, *мн.* -і, -ло́ек, *ж.* Жменя атрапанага або ачэсанага лёну.

**ПАЛО́К**, -лка́, *мн.* -лкі́, -лко́ў, *м.* **1.** Нары паміж печчу і супрацьлеглай сцяной уздоўж глухой сцяны ў сялянскай хаце. **2.** Шырокі драўляны памост у лазні, на якім парацца.

**ПАЛО́ЛЬНЫ** *гл.* палоць.

**ПАЛО́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца полівам чаго-н. ‖ *ж.* **пало́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПАЛО́МКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* **1.** *гл.* ламаць. **2.** Паламанае месца, пашкоджанне. *Ліквідаваць паломку.*

**ПАЛО́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Багамолец, які вандруе па святых мясцінах. ‖ *ж.* **пало́мніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **пало́мніцкі**, -ая, -ае.

**ПАЛО́МНІЦТВА**, -а, *н.* **1.** Вандраванне, падарожжа ў якасці паломніка. **2.** *перан.* Падарожжа, хаджэнне куды-н. вялікай колькасцю наведвальнікаў, каб азнаёміцца з якімі-н. славутасцямі, а таксама да славутай асобы (іран.). *Пачалося сапраўднае п. да раскапанага старажытнага помніка архітэктуры.* ‖ *прым.* **пало́мніцкі**, -ая, -ае. *Паломніцкая дарога.*

**ПАЛО́МНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Ажыццяўляць паломніцтва да святых мясцін.

**ПАЛО́Н**, -у, *м.* Няволя, у якой знаходзіцца чалавек, захоплены ворагам у час вайны. *Трапіць у п. У палоне старых уяўленняў* (перан.).

**ПАЛО́НІК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *апалонік*[1].

**ПАЛО́НІК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *апалонік*[2].

**ПАЛО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Незамерзлае або ўжо расталае месца на ледзяной паверхні ракі, возера. *Конь праваліўся ў палонку.* **2.** Адтуліна, прасечаная ў лёдзе ракі, возера і пад. *Лавіць рыбу ў палонцы.*

**ПАЛО́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *палонны.* ‖ *ж.* **пало́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **пало́нніцкі**, -ая, -ае.

**ПАЛО́ННЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ў палоне. *П. салдат. Узяць многа палонных* (наз.).

**ПАЛО́ПАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца, *зак.* Лопнуць (пра многія прадметы). *Шклянкі палопаліся.*

**ПАЛО́СА**, -ы, *мн.* -ы, -ло́с, *ж.* Тое, што і *паласа* (у 1—3 знач.). ‖ *памянш.* **пало́ска**, -і, *ДМ* -ло́сцы, *мн.* -і, -сак.

**ПАЛО́СКА** *гл.* паласа *і* палоса.

**ПАЛО́СНЫ** *гл.* паласа.

**ПАЛО́ТНІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -нішч *і* -нішчаў, *н.* Адрэзак тканіны на ўсю шырыню сатканага кавалка. *Стол прэзідыума быў накрыты чырвоным палотнішчам. П. сцяга.*

**ПАЛО́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Даходзіць да стану страху, баяцца. ‖ *зак.* **спало́хацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **напало́хацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАЛО́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго (што).* Наводзіць страх, боязь. ‖ *зак.* **спало́хаць**, -аю, -аеш, -ае *і* **напало́хаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *наз.* **пало́ханне**, -я, *н.*

**ПАЛО́ЦЬ**, палю́, по́леш, по́ле; палі́; по́латы; *незак., што.* Ачышчаць ад пустазелля або выдаляць яго адкуль-н. *П. грады. П. макрыцу.* ‖ *зак.* **вы́палаць**, -лю, -леш, -ле; -латы. ‖ *наз.* **по́ліва**, -а, *н.* ‖ *прым.* **пало́льны**, -ая, -ае (спец.).

**ПА́ЛТУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паўночная прамысловая рыба сямейства камбалавых. ‖ *прым.* **па́лтусавы**, -ая, -ае.

**ПА́ЛУБА**, -ы, *мн.* -ы, -луб, *ж.* Гарызантальнае перакрыцце ў корпусе судна. *Верхняя, ніжняя п. Выйсці з каюты на палубу.* ‖ *прым.* **па́лубны**, -ая, -ае.

**ПАЛУ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Тонкі слой волава, якім пакрываюць паверхню металічных вырабаў для засцярогі ад іржы, акіслення.

**ПАЛУДЗІ́ЦЬ** *гл.* лудзіць.

**ПАЛУ́ДНАВАЦЬ**, -ную, -нуеш, -нуе; -нуй; *незак.* Тое, што і *абедаць.* ‖ *зак.* **папалу́днаваць**, -ную, -нуеш, -нуе; -нуй.

**ПАЛУ́КАШ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Плецены кораб, які ўстаўляецца ў драбіны воза або сані.

**ПАЛУ́КАШАК**, -шка, *мн.* -шкі, -шкаў, *м.* Тое, што і *палукаш.*

**ПАЛУ́НДРА**, *выкл.* Вокрык, які перасцерагае аб небяспецы (першапачаткова ў маракоў і пажарных: папярэджанне тыпу «беражыся — падае зверху»).

**ПАЛУ́ТАРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (разм.). Грузавая машына грузападымальнасцю 1,5 тоны.

**ПАЛУ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (разм.). Атрыманыя за работу грошы, заработная плата. *Месячная п.*

**ПАЛЫМНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Ярка гарэць, палаць; знішчацца ў агні. *Хаты палымнелі ў агні.* **2.** Набываць колер полымя; вылучацца колерам полымя, яркай чырвонай афарбоўкай. *На ўсходзе палымнела зара. Палымнее чырвоная рабіна* (перан.). **3.** Пакрывацца румянцам. *Палымнее твар.* **4.** *перан.* Быць ахопленым якім-н. моцным пачуццём. *П. сэрцам. Палымнее агонь помсты.*

**ПАЛЫМЯ́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае ярка-чырвоны колер, колер полымя. *П. захад.* **2.** *перан.* Вельмі палкі, страсны, моцны (высок.). *П. патрыёт. Палымяная прамова.* ‖ *наз.* **палымя́насць**, -і, *ж.*

**ПАЛЫ́Н**, -у́, *м.* Эфіраносная расліна з дробнымі кветкамі, з моцным пахам і горкім смакам. ‖ *прым.* **палы́нны**, -ая, -ае *і* **палыно́вы**, -ая, -ае. *П. пах. Палыновая настойка.*

**ПАЛЫСЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў лысым, аблыселы.

**ПАЛЫСЕ́ННЕ** *гл.* лысець.

**ПАЛЫСЕ́ЦЬ** *гл.* лысець.

**ПА́ЛЬМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Паўднёвае вечназялёнае дрэва з прамым негалінастым ствалом і кронай з перыстых або веерападобных лістоў. *Какосавая п. Фінікавая п.* ◊ **Пальма першынства** (перан.: першае месца ў дасягненні чаго-н., перавага ў чым-н. [ад звычаю ў Старажытнай Грэцыі ўзнагароджваць пераможцу ў спаборніцтвах пальмавай галінкай або вянком]). ‖ *прым.* **па́льмавы**, -ая, -ае. *Пальмавая галіна* (перан.: сімвал міру).

**ПАЛЬПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Пры медыцынскім аглядзе даследаваць які-н. орган ці частку цела, абмацваючы рукамі. *П. селязёнку.* ‖ *наз.* **пальпава́нне**, -я, *н.* і **пальпа́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **пальпацы́йны**, -ая, -ае.

**ПА́ЛЬЦАВЫ** *гл.* палец.

**ПАЛЬЧА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Рукавіца з аддзяленнямі для кожнага пальца. *Скураныя пальчаткі. Кінуць пальчатку каму-н.* (таксама перан.: выклікаць на барацьбу, на спаборніцтва — сімвал выкліку на дуэль у мінулым). *Баксёрская п.* (прадмет рыштунку баксёра). *Першая п.* (перан.: пра лепшага баксёра). ‖ *прым.* **пальча́ткавы**, -ая, -ае.

**ПА́ЛЬЧАТЫ**, -ая, -ае (спец.). Падобны на палец. *Пальчатыя лісты.*

**ПА́ЛЬЧЫК** *гл.* палец.

**ПАЛЮБАВА́ЦЦА** *гл.* любавацца.

**ПАЛЮБІ́ЦЬ**, -люблю́, -лю́біш, -лю́біць; *зак., каго-што.* Адчуць любоў да каго-, чаго-н. *П. дзяўчыну. П. жывапіс.*

**ПАЛЮБО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м., чый* або *каго.* Мужчына, які знаходзіцца ў пазашлюбнай сувязі з жанчынай.

**ПАЛЮБО́ЎНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Жанчына, якая знаходзіцца ў пазашлюбнай сувязі з мужчынам.

**ПАЛЮБО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Заснаваны на ўзаемнай згодзе, дружалюбны, мірны. *Палюбоўная здзелка. Дамовіліся палюбоўна* (прысл.).

**ПА-ЛЮ́ДСКУ**, *прысл.* Так, як прынята ва ўсіх; як у іншых людзей. *Жыць па-людску. У вас усё не па-людску.*

**ПАЛЮЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., каго-што.* Правесці які-н. час, люляючы, калышучы. *П. дзіця.*

**ПА́ЛЯ**, -і, *ж.* Бервяно, брус, забіты ў грунт для апоры ў збудаваннях. *Забіваць палі. Мост на палях.* ‖ *прым.* **па́левы**, -ая, -ае.

**ПАЛЯВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н., на каго-што* або *за кім.* Пошукі і высочванне звяроў, птушак з мэтай знішчэння або лоўлі. *П. на ваўкоў. П. за перапёлкамі. П. за варожым снайперам* (перан.). ‖ *прым.* **паляўні́чы**, -ая, -ае. *Паляўнічае таварыства. П. сабака. П. промысел.*

**ПАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; *незак.* **1.** *на каго, каго, за кім* і *без дап.* Займацца паляваннем. *П. на ваўкоў. Ён паляваў мядзведзя. П. за перапёлкамі. П. за варожым разведчыкам* (перан.). **2.** *перан., за кім-чым* або *на што.* Старацца раздабыць, атрымаць, украсці што-н. (разм.). *П. за рэдкай кнігай.* **3.** Знаходзіцца ў стане цечкі (пра жывёлу; спец.).

**ПАЛЯВЕ́ЦЬ** *гл.* лявець.

**ПАЛЯВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па паляводстве.

**ПАЛЯВО́ДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне палявых сельскагаспадарчых культур, а таксама навука аб палявых культурах. ‖ *прым.* **паляво́дчы**, -ая, -ае.

**ПАЛЯВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* поле. **2.** Які знаходзіцца або які робіцца ў полі (не ў садзе, не ў лесе, не ў гарах). *Палявыя травы. Палявая мыш. Палявыя работы.* **3.** Які мае адносіны да баявых дзеянняў, паходны. *Палявая артылерыя. Палявая пошта. П. статут. Палявая форма.*

**ПАЛЯГА́ННЕ** *гл.* палегчы.

**ПАЛЯГА́ЦЬ** *гл.* палегчы.

**ПАЛЯГЧА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго.* Вылегчаць, кастрыраваць усіх, многіх.

**ПАЛЯГЧА́ЦЬ**[2] *гл.* палегчыць.

**ПАЛЯГЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* палегчыць. **2.** Стан лёгкасці, вызвалення ад чаго-н. *Адчуць некаторае п.*

**ПАЛЯГЧЭ́ЦЬ** *гл.* лягчэць.

**ПАЛЯЖА́ЦЬ**, -ляжу́, -ляжы́ш, -ляжы́ць; -ляжы́м, -лежыце́, -ляжа́ць; -ляжы́; *зак.* Прабыць некаторы час лежачы. *П. пасля абеду.*

**ПАЛЯ́КІ**, -аў, *адз.* -ля́к, -а, *м.* Заходнеславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Польшчы. ‖ *ж.* **по́лька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек. ‖ *прым.* **по́льскі**, -ая, -ае.

**ПАЛЯ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ля́н, *ж.* Невялікая, адкрытая прастора сярод лесу, хмызняку. ‖ *памянш.* **паля́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.*

-і, *ж.* *і памянш.-ласк.* **паля́начка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ПАЛЯНДВІ́ЦА**, -ы, *ж.* Мяса вышэйшага гатунку з сярэдняй часткі свіной тушы каля хрыбта, якое вэндзяць або вяляць. ‖ *прым.* **паляндві́чны**, -ая, -ае. *Паляндвічная выразка.*

**ПАЛЯ́ПАЦЬ** *гл.* ляпаць.

**ПАЛЯПША́ЦЦА** *гл.* палепшыцца.

**ПАЛЯПША́ЦЬ** *гл.* палепшыць.

**ПАЛЯПШЭ́ННЕ** *гл.* палепшыць.

**ПАЛЯ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Удзельнік палярных экспедыцый, работнік палярных станцый. ‖ *ж.* **паля́рніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАЛЯ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да полюса (у 1 і 2 знач.), звязаны з дзейнасцю на полюсе, каля полюса. *П. клімат. Палярная станцыя. Палярныя групы атамаў.* **2.** *перан.* Цалкам супрацьлеглы каму-, чаму-н. (кніжн.). *Палярныя погляды.* Звязаны з наяўнасцю дадатных ці адмоўных зарадаў. *Палярныя групы атамаў.* ‖ *наз.* **паля́рнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПАЛЯРЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́н, *ж.* Накідка на плечы, звычайна кароткая (не даходзіць да пояса), а таксама верхняя частка паліто, сукенкі ў форме такой накідкі. *Паліто з палярынай.* ‖ *прым.* **паляры́нны**, -ая, -ае.

**ПАЛЯСО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Лясны вартаўнік, ляснік. ‖ *прым.* **палясо́ўшчыцкі**, -ая, -ае.

**ПАЛЯТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** Прабыць некаторы час у палёце. **2.** Пабегаць да стомы (разм.). *Хлапчукі паляталі, паляталі ды змагліся.*

**ПАЛЯЎНІ́ЦТВА**, -а, *н.* Занятак паляваннем.

**ПАЛЯЎНІ́ЧЫ**[1], -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Той, хто займаецца паляваннем.

**ПАЛЯЎНІ́ЧЫ**[2] *гл.* паляванне.

**ПАЛЯЦЕ́ЦЬ**, -лячу́, -ляці́ш, -ляці́ць; -ляці́м, -лецце́, -ляця́ць; -ляці́; *зак.* **1.** *гл.* ляцець. **2.** Пачаць ляцець (у 1—5 знач.).

**ПАМ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. памочнік, напр.: *паммайстра, памбух* (памочнік бухгалтара), *памзаг* (памочнік загадчыка).

**ПАМАГА́ТЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* **1.** Той, хто памагае каму-н. у чым-н., падручны (у 2 знач.). *Абыдземся без памагатых.* **2.** Прыслужнік, гатовы на любыя дзеянні, учынкі.

**ПАМАГЧЫ́**, -магу́, -мо́жаш, -мо́жа; -мо́г, -магла́, -ло́; -мажы́; *зак., каму.* Тое, што і *дапамагчы. П. грашамі. П. пабудавацца. Лякарства памагло.* ‖ *незак.* **памага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАМА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ма́д, *ж.* Пахучая касметычная мазь. *Губная п.* ‖ *прым.* **пама́дны**, -ая, -ае.

**ПАМА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак., што* (разм.). Мазаць памадай. *П. губы.* ‖ *зак.* **напама́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны. ‖ *звар.* **пама́дзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* **напама́дзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца.

**ПАМА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Гатунак мяккіх духмяных цукерак. *Фруктовая п.*

**ПАМАЁМАСНЫ**, -ая, -ае (афіц.). Які бярэцца з маёмасці. *П. падатак* (на рухомую і нерухомую маёмасць).

**ПАМАЖНЕ́ЦЬ** *гл.* мажнець.

**ПАМА́ЗАННЕ**, -я, *н.* (уст.). Царкоўны абрад, які заключаўся ў крыжападобным мазанні ялеем (мірам) у знак благаславення (пры хрышчэнні, узвядзенні на царства, у духоўны сан і інш.). *П. на царства.*

**ПАМА́ЗАННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Той, хто памазаны на царства, манарх.

**ПАМА́ЗАЦЦА** *гл.* мазацца.

**ПАМА́ЗАЦЬ**[1], -ма́жу, -ма́жаш, -ма́жа; -ма́ж; -ма́заны; *зак., каго (што)* (уст.). Учыніць над кім-н. абрад памазання.

**ПАМА́ЗАЦЬ**[2] *гл.* мазаць[1].

**ПАМАЗО́К**, -зка́, *мн.* -зкі́, -зко́ў, *м.* Невялічкі пэндзаль для змазвання чаго-н. *П. для галення.*

**ПАМАЛАДЗЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які набыў больш малады выгляд, адчуў сябе маладзейшым. *П. твар.*

**ПАМАЛАДЗЕ́ЦЬ** *гл.* маладзець.

**ПАМАЛЕ́НЬКУ**, *прысл.* **1.** Патроху, невялікімі долямі. *Есці п.* **2.** Не спяшаючыся, паціху. *Старасць ходзіць п.* **3.** Паступова, не адразу. *Боль п. адыходзіць.* **4.** Асцярожна (разм.). *П., не разбі.*

**ПАМАЛІ́ЦЦА** *гл.* маліцца.

**ПАМА́ЛУ**, *прысл.* **1.** Не спяшаючыся, паволі. *Ішлі п.* **2.** Паступова, не адразу. *Туман п. рассейваўся.* **3.** Асцярожна (разм.). *П., не зваліся!*

**ПАМАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ляв́аны; *зак.* **1.** Правесці які-н. час, малюючы краявіды. **2.** *што.* Пакрыць фарбай (разм.). *П. аканіцы.*

**ПАМАНІ́ЦЬ** *гл.* маніць.

**ПАМА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Папраўленае месца ў напісаным тэксце. *Пісаць трэба без памарак.*

**ПАМАРНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Змарнець (пра многае, многіх). *Расліны без сонца памарнелі.*

**ПАМАРО́ЗІЦЬ**, -ро́жу, -ро́зіш, -ро́зіць; -ро́жаны; *зак., што.* Даць замерзнуць, знішчыць, сапсаваць марозам або абмарозіць (звычайна пра многіх, многае). *П. усю бульбу. П. вушы.*

**ПАМАРУ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *зак.* Пачакаць рабіць што-н., затрымаць адказ, рашэнне на некаторы час. *П. з адказам.*

**ПАМА́РЫЦЬ** *гл.* ма́рыць.

**ПАМАРЫ́ЦЬ** *гл.* мары́ць.

**ПАМА́СЛІЦЬ** *гл.* масліць.

**ПАМАЎЗА́**, -ы́, *ДМ* -е́, *Т* -о́й (-о́ю), *мн.* -ы́, -о́ў, *м. і ж.* (разм.). Шкоднік, свавольнік. *Які гэты кот п.!*

**ПАМАЎЗЛІ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Шкадлівы. *Да чаго ж памаўзлівая кошка!* **2.** Ласы, прагны да чаго-н. смачнага, прыгожага. *П. на ласункі.* ‖ *наз.* **памаўзлі́васць**, -і, *ж.*

**ПАМАХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каму, чым.* Махнуць некалькі разоў. *П. рукой, каб хутчэй ішлі.*

**ПАМА́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., чым.* Махаць злёгку, зрэдку, час ад часу. *П. сцяжком.*

**ПАМАЦАВА́ЦЬ** *гл.* мацаваць.

**ПАМА́ЦАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** *гл.* мацаць. **2.** Пашукаць некаторы час вобмацкам. *П. у кішэнях.*

**ПАМАЦНЕ́ЦЬ** *гл.* мацнець.

**ПАМАЧЫ́ЦЦА** *гл.* мачыцца.

**ПАМЕ́НШЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* Стаць меншым. *Дзень паменшыўся. Боль паменшыўся.* ‖ *незак.* **памянша́цца**, -а́ецца *і* **паме́ншвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **памяншэ́нне**, -я, *н.*

**ПАМЕ́НШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., што.* Зрабіць меншым. *П. выдаткі.* ‖ *незак.* **памянша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **памяншэ́нне**, -я, *н.*

**ПАМЕ́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Велічыня чаго-н. у якім-н. вымярэнні. *П. участка. П. туфель.* **2.** Ступень развіцця, велічыня, маштаб якой-н. з'явы. *Здарэнне набыло шырокія памеры.* **3.** Колькасць і характар стоп у вершаваных радках, якія з'яўляюцца асновай рытму; таксама колькасць рытмічных адзінак у музыкальным такце (спец.). *Ямб — двухдольны п. Вальсы пішуцца памерам у тры чвэрці.* ‖ *прым.* **паме́рны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ПАМЕ́РАЦЦА** *гл.* мерацца.

**ПАМЕ́РАЦЬ** *гл.* мерацъ.

**ПАМЕ́РЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; памёрз, -мёрзла; -ні; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. адз. не ўжыв.*). Загінуць ад марозу (пра многіх, многае). *Кветкі памерзлі.* **2.** Прабыць некаторы час на марозе, на холадзе. *Колькі мы памерзлі на дварэ.*

**ПАМЕРКАВА́ЦЦА**, -мярку́юся, -мярку́ешся, -мярку́ецца; -мярку́йся; *зак.* Прыйсці да ўзаемнага пагаднення, паладзіць. *Мы з ім як-небудзь памяркуемся.*

**ПАМЕРКАВА́ЦЬ**, -мярку́ю, -мярку́еш, -мярку́е; -мярку́й; *зак.* **1.** Усебакова разгледзець, абдумаць што-н., дзелячыся сваімі думкамі, меркаваннямі. *Давайце разам памяркуем і вырашым, што будзем рабіць далей.* **2.** Падумаўшы, разважыць, прыйсці да якога-н. вываду. *Ён памеркаваў і згадзіўся.*

**ПАМЕ́РКЛЫ**, -ая, -ае. Няяркі, цьмяны. *П. малюнак.*

**ПАМЕ́РКНУЦЬ** *гл.* меркнуць.

**ПАМЕ́РЛЫ**, -ая, -ае. Які памёр, перастаў жыць. *Шанаваць памяць памерлых* (наз.).

**ПАМЕ́РЦІ**, -мру́, -мрэ́ш, -мрэ́; -мро́м, -мраце́, -мру́ць; памёр, -мёрла; -мры́; *зак.* **1.** Перастаць жыць. *Маці даўно памерла. П. ад ран.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Знікнуць, спыніцца (кніжн.). *Справа нашых бацькоў не памрэ.* ‖ *незак.* **паміра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **паміра́нне**, -я, *н.*

**ПАМЕ́СНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які мае адносіны да валодання зямлёй і да карыстання ёю на аснове феадальных правоў. *П. лад.*

**ПАМЕ́СЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Зямельнае ўладанне памешчыка. *Буйное п.*

**ПАМЕ́СЯЧНЫ**, -ая, -ае. Які разлічваецца па месяцах. *П. даход. Работа аплачваецца памесячна* (прысл.).

**ПАМЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -ме́це, *мн.* -ы, -ме́т, *ж.* У слоўніках: спецыяльнае ўказанне на граматычную ўласцівасць слова, яго стылістычную афарбоўку і інш. *Граматычныя паметы. Стылістычная п.*

**ПАМЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Надпіс, запіс, знак, якім абазначаецца што-н. *Паметкі на палях кнігі.*

**ПАМЕ́ЦІЦЬ** *гл.* меціць[1].

**ПАМЕ́ШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Землеўладальнік-дваранін (у краінах, дзе існуюць прыгонніцкія, феадальныя адносіны або іх рэшткі). ‖ *ж.* **паме́шчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **паме́шчыцкі**, -ая, -ае.

**ПАМЁТ**, -у, *М* -мёце, *м.* Кал жывёл, птушак. *Птушыны п.*

**ПАМІДО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Агародная расліна сямейства паслёнавых, а таксама акруглы плод яе, звычайна чырвонага або жоўтага колеру. ‖ *прым.* **памідо́рны**, -ая, -ае.

**ПАМІ́Ж**, *прыназ.* **1.** *з Р* або *Т.* Ужыв. для ўказання становішча прадмета або праяўлення дзеяння ў перамежку, пасярэдзіне чаго-н. *П. акном і сталом. П. хмар. П. двух агнёў* (перан.). *П. дзесяццю і дванаццаццю гадзінамі.* **2.** *з Т* або *Р.* Ужыв. для ўказання на групу прадметаў або асоб, у асяроддзі якіх наглядаюцца ўзаемасувязі, узаемаадносіны, узаемадзеянне. *П. намі ёсць дамоўленасць. П. старымі сябрамі* або *п. старых сяброў стаў назірацца разлад. П. намі* (па сакрэце). **3.** *з Т.* Служыць для ўказання на супастаўленне якіх-н. прадметаў, асоб, з'яў. *Розніца п. прыказкай і прымаўкай.* **4.** *з Т.* Служыць для абазначэння якой-н. групы прадметаў ці асоб, у межах якой адбываецца размеркаванне, падзел чаго-н. *Размеркаваць працу п. супрацоўнікамі.*

**ПАМІЗАРНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які зрабіўся мізэрным, схуднелым. *П. чалавек.*

**ПАМІЗАРНЕ́ЦЬ** *гл.* мізарнець.

**ПАМІ́ЛАВАЦЬ**, -лую, -луеш, -луе; -луй; -лаваны; *зак., каго (што).* **1.** Даравацьь каму-н. віну, пашкадаваць. *Не памілуе вас за гэта бацька.* **2.** Адмяніць або змякчыць пакаранне асуджанаму. *П. асуджанага.* ‖ *наз.* **памі́лаванне**, -я, *н.* (да 2 знач.). *Просьба аб памілаванні.*

**ПАМІНА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Кніжачка са спісам для памінання. *Занесці ў п. каго-н.*

**ПАМІНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які наладжваецца пры памінках; які мае адносіны да памінак. *П. стол. П. абрад.*

**ПАМІНА́ННЕ** *гл.* памянуць.

**ПАМІНА́ЦЬ** *гл.* памянуць.

**ПАМІ́НКІ**, -нак. Абрадавы абед у памяць памерлага пасля хаўтур або праз пэўны тэрмін з дня смерці. *Запрашаць родных на п. Справіць п. па кім-н.*

**ПАМІНУ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адбываецца кожную мінуту, бесперапынна. *Памінутныя выклікі да тэлефона. Памінутна* (прысл.) *турбуюць.* **2.** Які вылічваецца па мінутах. *Памінутная плата за тэлефонныя перагаворы.* ‖ *наз.* **памінутнасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**ПАМІРА́ННЕ** *гл.* памерці.

**ПАМІРА́ЦЬ** *гл.* памерці.

**ПАМІРЫ́ЦЦА** *гл.* мірыцца.

**ПАМІРЫ́ЦЬ** *гл.* мірыць.

**ПАМКНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Імкліва рушыць у якім-н. напрамку. *Я памкнуўся ў дом, але мяне затрымалі.* **2.** Намерыцца што-н. зрабіць. *П. адгаварыць каго-н. ад чаго-н.* ‖ *незак.* **памыка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАМНАЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што на што.* Тое, што і *множыць* (у 1 знач.).

**ПАМНАЖЭ́ННЕ** *гл.* множыць.

**ПАМНО́ГУ**, *прысл.* (разм.). У вялікай колькасці, многа (звычайна пра тое, што паўтараецца). *П. перапісваць адно і тое ж.*

**ПАМНО́ЖЫЦЦА** *гл.* множыцца.

**ПАМНО́ЖЫЦЬ** *гл.* множыць.

**ПАМО́Л**, -у, *м.* **1.** Перапрацоўка зерня на муку. **2.** Якасць атрыманай мукі. *Мука мяккага памолу.* **3.** Змолатае збожжа; мліва. *Ёсць у запасе розны п.* ‖ *прым.* **памо́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПАМО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Жыхар памор'я. *Архангельскія паморы.* ‖ *ж.* **памо́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **памо́рскі**, -ая, -ае.

**ПАМО́Р'Е**, -я, *н.* На Поўначы: мясцовасць, якая прымыкае да марскога берага. ‖ *прым.* **памо́рскі**, -ая, -ае.

**ПАМО́РШЧЫЦЦА** *гл.* моршчыцца.

**ПАМО́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Узвышэнне ў выглядзе дашчанай пляцоўкі. *Лектар узышоў на п.* **2.** Тое, што і *падлога. Кухня была з цагляным памостам.*

**ПАМО́ЎКА**, -і, *ДМ* -мо́ўцы, *мн.* -і, -мо́вак, *ж.* Гаворка (ужыв. звычайна ў прымаўцы: пра воўка памоўка, а воўк і тут — пра таго, хто паяўляецца ў той момант, калі пра яго гавораць ці думаюць; разм.).

**ПАМО́ЎЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Маўчаць, ухіляючыся ад размоў. *Сядзі ды памоўчвай.*

**ПАМО́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які памагае каму-н. у чым-н. *П. у рабоце.* **2.** Тое, што і *намеснік* (у 2 знач.). *П. машыніста цеплавоза.* ‖ *ж.* **памо́чніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 1 знач.).

**ПА́МПА** *гл.* пампасы.

**ПАМПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш; -пу́е; -пу́й; *незак., што.* Падаваць у што-н. або выцягваць, здабываць помпай. *П. ваду.* ‖ *наз.* **пампава́нне**, -я, *н.*

**ПАМПА́СЫ**, -аў *і* (спец.) **ПА́МПА**, -ы, *ж.* Паўднёваамерыканскія стэпы. ‖ *прым.* **пампа́савы**, -ая, -ае *і* **пампа́сны**, -ая, -ае.

**ПАМПО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Упрыгажэнне ў выглядзе шарыка з нітак, футра і пад. на галаўным уборы, пакаёвых туфлях і пад. *Шапачка з пампонам.* ‖ *памянш.* **пампо́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ПАМПУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Пышная круглая булка. **2.** *перан.* Пра тоўстае, пульхнае дзіця, жанчыну (разм.). ‖ *памянш.* **пампу́шачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ПАМУЖНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які памужнеў, пасталеў. *П. воін.*

**ПАМУЖНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Стаць больш развітым фізічна, больш дарослым, сталым, узмужнець. *Хлопец памужнеў.*

**ПАМУ́ЛЯЦЦА**, -яюся, -яешся, -яецца; *зак.* (разм.). Тое, што і *памяцца*[1].

**ПАМУТНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаў мутным, непразрыстым. *Памутнелыя шыбы.* **2.** Які прыняў неасэнсаваны выраз (пра вочы, погляд). *Глядзець памутнелымі вачамі.* **3.** *перан.* Які страціў яснасць, зацямніўся (пра думкі, розум і пад.). *Памутнелая свядомасць.* **4.** Які страціў выразнасць абрысаў. *Памутнелыя далі.* ‖ *наз.* **памутне́ласць**, -і, *ж.*

**ПАМУТНЕ́ЦЬ** *гл.* мутнець.

**ПАМУЦІ́ЦЦА** *гл.* муціцца.

**ПАМУЦІ́ЦЬ** *гл.* муціць.

**ПАМУ́ЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* Зведаць муку, мучэнне на працягу якога-н. часу.

**ПАМФЛЕ́Т**, -а, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Злабадзённы востры сатырычны твор (артыкул, брашура), звычайна палітычнага характару, накіраваны супраць каго-, чаго-н. ‖ *прым.* **памфле́тны**, -ая, -ае.

**ПАМФЛЕТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтар памфлетаў. ‖ *ж.* **памфлеты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПАМЧА́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца; -чы́ся; *зак.* Пачаць імчацца з вялікай хуткасцю. *Коннікі памчаліся ў лес.*

**ПАМЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *зак.* **1.** *каго-што.* Пачаць імчаць, везці вельмі хутка. *Коні памчалі павозку.* **2.** Тое, што і *памчацца* (разм.). *Воўк памчаў у лес.*

**ПАМЫ́І**, -яў. Брудная вада з харчовымі адкідамі пасля мыцця пасуды і пад. *Балейка для памыяў. Абліць памыямі каго-н.* (таксама перан.: ачарніць, абняславіць). ‖ *прым.* **памы́йны**, -ая, -ае. *Памыйная яма* (памыйніца).

**ПАМЫ́ЙНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** Памыйная яма, месца, куды выліваюць памыі. **2.** Пасудзіна, у якую зліваюць памыі.

**ПАМЫКА́ЦЦА** *гл.* памкнуцца.

**ПАМЫЛІ́ЦЦА**, -ылю́ся, -ы́лішся, -ы́ліцца; *зак.* Зрабіць памылку. *П. ў падліках.* ‖ *незак.* **памыля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПАМЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Няправільнасць у дзеяннях, думках. *П. ў разліках. Напісаць без памылак. Выправіць памылку.* ○ **Памылка друку** — памылка ў друкаваным тэксце.

**ПАМЫЛКО́ВЫ**, -ая, -ае. Няправільны, з памылкай. *Памылковае ўяўленне. Памылкова* (прысл.) *дзейнічаць.* ‖ *наз.* **памылко́васць**, -і, *ж.*

**ПАМЫ́СНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Жаданы, згодны з думкамі. *Памысная будучыня.* **2.** Удалы, шчаслівы. *П. паход.* ‖ *наз.* **памы́снасць**, -і, *ж.*

**ПАМЫ́ЦЦА** *гл.* мыцца.

**ПАМЫ́ЦЬ** *гл.* мыць.

**ПАМЯКЧЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які памякчэў, стаў мяккім. *П. воск.* **2.** *перан.* Які страціў суровасць, стаў больш лагодным.

**ПАМЯКЧЭ́ЦЬ** *гл.* мякчэць.

**ПАМЯЛО́**, -а́, *мн.* -мёлы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) -мялы́, -мёлаў, *н.* Венік з яловых, сасновых галінак, надзеты на доўгую палку, для вымятання, абмятання чаго-н. *Вымятаць печ памялом.*

**ПАМЯНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -мяну́ты *і* -нёны (да 1 знач.); *зак.* **1.** *каго-што.* Успомніць, упамянуць у размове (разм.). *П. дабром каго-н.* **2.** *каго (што).* Наладзіць, справіць чые-н. памінкі. *П. нябожчыка.* **3.** У вернікаў: памаліцца за ўпакой памерлых. ‖ *незак.* **памiна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. *Памінай як звалі* (перан.: бясследна знік, прапаў; разм.); *наз.* **памiна́нне**, -я, *н.* (да 2 і 3 знач.).

**ПАМЯНШÁЕМАЕ**, -ага, *н.* Лік (або выраз), ад якога адымаюць другі лік.

**ПАМЯНША́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які служыць для памяншэння адлюстравання прадметаў. *Памяншальнае шкло.* **2.** У граматыцы: звязаны з утварэннем назоўнікаў і прыметнікаў, якія абазначаюць меншую велічыню прадмета або паменшаную ступень якасці, а таксама станоўчыя эмацыянальныя адносіны, напр.: *дамок, яблычак, ціхенькі, добранькі. П. суфікс. Памяншальная форма прыметнікаў.*

**ПАМЯНША́ЦЦА** *гл.* паменшыцца.

**ПАМЯНША́ЦЬ** *гл.* паменшыць.

**ПАМЯНШЭ́ННЕ** *гл.* паменшыць.

**ПАМЯНЯ́ЦЦА** *гл.* мяняцца.

**ПАМЯНЯ́ЦЬ** *гл.* мяняць.

**ПАМЯРА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Вечназялёнае цытрусавае дрэва, а таксама духмяны кіславата-горкі плод яго. ‖ *прым.* **памяра́нцавы**, -ая, -ае. *Памяранцавыя галінкі.*

**ПАМЯРКО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Падатлівы, які лёгка прыстасоўваецца да іншых. *П. чалавек.* **2.** Які выяўляе мяккасць, цярпімасць; добразычлівы. *П. тон выступлення.* **3.** Які прытрымліваецца сярэдзіны, не схільны да крайнасцей. *Памяркоўныя погляды.* ‖ *наз.* **памярко́ўнасць**, -і, *ж.*

**ПАМЯРЦВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. З прыметамі смерці, смяротна бледны. *П. твар.*

**ПАМЯРЦВЕ́ЦЬ** *гл.* мярцвець.

**ПА́МЯТАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца *і* **ПАМЯТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* Тое, што і *помніцца.*

**ПА́МЯТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае *і* **ПАМЯТА́ЦЬ** -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што, пра каго-што* і *аб кім-чым.* Тое, што і *помніць.*

**ПА́МЯТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Кніжка, лісток з кароткімі настаўленнямі на які-н. выпадак, з кароткімі звесткамі пра каго-, што-н. *Скласці памятку турыста.*

**ПА́МЯТЛІВЫ**, -ая, -ае. Які мае добрую памяць. ‖ *наз.* **па́мятлівасць**, -і, *ж.*

**ПА́МЯТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які захаваўся ў памяці; незабыўны. *Памятная падзея.* **2.** Які служыць для заметак, даведак, для захавання чаго-н. у памяці. *Памятная кніжка.* **3.** Які служыць для напаміну пра каго-, што-н., які зроблены як памяць пра што-н. *П. падарунак. П. медаль.*

**ПАМЯ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Няроўны, нягладкі, са складкамі. *П. касцюм.* **2.** Стомлены, нясвежы, нібы заспаны (разм.). *П. твар.* ‖ *наз.* **памя́тасць**, -і, *ж.*

**ПАМЯ́ЦЦА**, -мну́ся, -мне́шся, -мне́цца; -мнёмся, -мняце́ся, -мну́цца; -мні́ся; *зак.* (разм.). **1.** *гл.* мяцца[1]. **2.** Памарудзіць, праяўляючы нерашучасць, ваганне ў вырашэнні чаго-н. *Крыху памяўшыся, згадзіўся.*

**ПА́МЯЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Здольнасць захоўваць і аднаўляць у свядомасці ранейшыя ўражанні, вопыт, а таксама сам запас уражанняў, якія захоўваюцца ў свядомасці. *Добрая п. Урэзацца ў п. Вылецець з памяці* (забыцца). *Гаварыць на п.* або *па памяці* (не гледзячы ў тэкст). *Выкінуць з памяці* (забыць). *Даццa ў п.* (запомніцца). *Падарыць што-н. каму-н. на п.* (каб помніў). *Не ў п.* (пра тое, што не помніцца). *На памяці чыёй* або *пры памяці чыёй* ці *за чыю п.* (у перыяд жыцця каго-н., калі ён сам быў сведкам чаго-н.). *Дайсці да памяці* (апрытомнець). *Прыйсці на п.* (успомніцца). *Кароткая п. у каго-н.* (хутка забывае; звычайна пра таго, хто не хоча помніць, успамінаць што-н.). *Курыная п.* (вельмі дрэнная; разм., жарт.). *П. машыны* (перан.: пра запамінальнае ўстройства вылічальнай машыны). **2.** Успамін пра каго-, што-н. *Ён пакінуў у нас добрую п. пра сябе. Захоўваць п. пра якую-н. падзею.* **3.** Тое, што звязана з памерлым (успаміны пра яго, пачуцці да яго і пад.). *Прысвяціць манаграфію памяці свайго настаўніка. Ушанаваць п. нябожчыка ўстаўаннем. Вечная п. каму-н.* (пажаданне, каб доўга, вечна помнілі каго-н. памерлага). ◊ **Без памяці** — 1) без прытомнасці. *Хворы быў без памяці;* 2) вельмі моцна (разм.). *Бегчы без памяці;* 3) *ад каго-чаго.* У захапленні (разм.). *Ён без памяці ад дзяўчыны.*

**ПАМЯ́ЦЬ**, -мну́, -мне́ш, -мне́; -мнём, -мняце́, -мну́ць; -мні́; -мя́ты; *зак., што.* Зрабіць мятым, змяць. *П. касцюм.*

**ПАМЯЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што.* Ставіць паметкі на чым-н. *П. старонкі рукапісу.*

**ПАМЯША́ЦЬ** *гл.* мяшаць.

**ПАМЯШКА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Унутранасць будынка, месца, дзе хто-, што-н. размяшчаецца. *Жылое п. Добра абсталяванае п.*

**ПАН**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** У старой Чэхіі, Польшчы, Літве, дарэвалюцыйнай Беларусі і Украіне: заможны феадал, буйны землеўласнік (памешчык, дваранін і пад.), а таксама зварот да яго. *Жыць як пан* або *панам* (перан.: жыць у багацці і раскошы; разм.). **2.** Пра чалавека, які ўхіляецца ад працы сам і мае моду перакладваць работу на іншых (разм.). *Сядзець як пан* або *панам* (перан.: гультаяваць, нічога не рабіць; разм.). **3.** Форма ветлівага звароту да мужчын у Польшчы, Чэхіі і інш. краінах (дадаецца да прозвішча, імя, службовага тытула і пад.). *Паважаныя дамы і паны!* ‖ *ж.* **па́ні**, *нескл.* ‖ *прым.* **па́нскі**, -ая, -ае. *П. двор. Панскія замашкі.*

**ПАН...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. паўнаты ахопу, панавання, напр.: *пан'еўрапейскі, панславізм, панэлінізм.*

**ПАНАВА́ЛЬВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; *зак., чаго.* **1.** Наваліць, нагрузіць на каго-, што-н. вялікую колькасць чаго-н. *П. галля на вогнішча.* **2.** Накідаць у беспарадку многа чаго-н.

**ПАНАВА́ЛЬВАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *зак., чаго.* Зрабіць шляхам валення многа чаго-н. *П. валёнак.*

**ПАНАВА́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* Наварыць многа чаго-н. *П. страў на цэлую талаку.*

**ПАНАВАРО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., чаго.* **1.** Нaварочаць, накідаць, нагрувасціць у вялікай колькасці. *П. зямлі.* **2.** *што чым.* Прыкрыць, навярнуўшы чым-н. *П. міскі каструлямі.*

**ПАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; *зак.* **1.** Мець уладу над кім-, чым-н., мець перавагу перад кім-, чым-н. або дзе-н. *П. у паветры. П. на моры.* **2.** Мець пераважнае распаўсюджанне. *Там панавала менавіта гэта думка.* **3.** Ахопліваць, напаўняць сабой усё. *У лесе панавала цішыня.* **4.** *над чым.* Узвышацца, узнімацца над чым-н. *Узвышша пануе над наваколлем.* **5.** Жыць у раскошы (разм.). *Завёў сабе добрую гаспадарку і пануе.* ‖ *наз.* **панава́нне**, -я, *н.* (да 1—3 і 5 знач.). *Фашысцкія захопнікі імкнуліся да панавання над светам. П. ў паветры. Палітычнае п. П. чалавека над прыродай.*

**ПАНАВЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Зрабіцца навейшым, абнавіцца. *Пафарбаваны паркан нібы панавеў.*

**ПАНАВЕ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* Навешаць чаго-н. у многіх месцах. *П. ліхтароў.*

**ПАНАВО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *зак.* **1.** *каго (што).* Навесці, прывесці ў вялікай колькасці. *П. дзяцей у хату.* **2.** *што.* Цэлячыся, накіраваць на каго-, што-н. у вялікай колькасці. *П. пісталеты ў цэль.*

**ПАНАВО́ЗІЦЬ**, -о́жу, -о́зіш, -о́зіць; *зак., каго-што.* Навезці, прывезці ў вялікай колькасці. *П. дроў.*

**ПАНАВЯ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** *чаго.* Зрабіць шляхам вязання многа чаго-н. *П. пальчатак.* **2.** *што.* Пачапіць што-н. усім, многім. *П. званкі на шыю жывёле.* **3.** *каго.* Прывязаць, каб не разыходзіліся (пра жывёлу). *П. коней на ланцугі.*

**ПАНАГАНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак.* **1.** *каго-чаго.* Нагнаць, сабраць у адным месцы многа каго-, чаго-н. *П. жывёлы на бойню. П. лодак у бухту.* **2.** *што.* Нацерці (пра мазалі). *П. мазалі на руках.* **3.** *што.* Набіваючы, насадзіць на што-н. усё, многае. *П. абручы на бочку.* **4.** *чаго.* Увагнаць многа чаго-н. куды-н. *П. цвікоў у сцяну.*

**ПАНАГРУЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *каго-што.* Нагрузіць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. вазы сенам.* **2.** *каго (што).* Ускласці дадатковую нагрузку на многіх.

**ПА-НАД**, *прыназ. з Т.* Ужыв. пры ўказанні на каго-, што-н., над якімі ў пэўным кірунку адбываецца рух, дзеянне або зверху над якімі што-н. адбываецца. *Песні плылі па-над гаем. Гучыць голас міру па-над светам.*

**ПАНАДВО́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* (разм.). Двор каля дома. *Падмесці п.*

**ПАНАДВЯ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Надвязаць усё, многае. *П. панчохі. П. вяроўкі.*

**ПАНАДЗІМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *што.* Надзьмуць, напоўніць (паветрам, газам) усё, многае. *П. веласіпедныя камеры.* **2.** пераважна *безас., чаго.* Нанесці ветрам вялікую колькасць чаго-н. *Панадзімала ў вокны пылу.*

**ПАНА́ДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак., з інф.* і *без дап.* Набыць звычку рабіць што-н. непажаданае. *Зайцы панадзіліся ў сад. Конь панадзіўся хадзіць у авёс.*

**ПАНАДЗЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Надзець на сябе шмат чаго-н. або на вялікую колькасць каго-, чаго-н. *Франтавікі панадзявалі ўзнагароды. П. навалачкі на падушкі.*

**ПАНАДКУ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Надкусіць усё, многае ў многіх месцах. *П. яблыкі.*

**ПАНА́ДНЫ**, -ая, -ае. Такі, што прыцягвае да сябе якімі-н. якасцямі, прывабны. *П. выгляд. П. смех.* ‖ *наз.* **пана́днасць**, -і, *ж.*

**ПАНАДТО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Надтачыць, зрабіць даўжэйшым усё, многае. *П. вяроўкі.*

**ПАНАЖО́ЎШЧЫНА**, -ы, *ж.* (разм.). Бойка, у якой прымяняюцца нажы, халодная зброя. *Прычынай забойства была п.*

**ПАНАЖЫ́**, -о́ў, *адз.* по́наж, -а, *м.* (спец.). Прылада ў ткацкім станку ў выглядзе дзвюх або некалькіх дошчачак пад кроснамі, пры дапамозе якіх нагамі прыводзяцца ў рух ніты.

**ПАНАЖЫВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Нажыцца, разбагацець — пра ўсіх, многіх. *Многія панажываліся за гэтыя гады.*

**ПАНАЖЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што* і *чаго.* Нажыць паступова што-н. (пра маёмасць).

**ПАНАЗНАЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *каго (што).* Прызначыць на якую-н. пасаду, працу ўсіх, многіх. **2.** *што.* Устанавіць, вызначыць што-н. усім, многім. *П. пенсіі.*

**ПАНАКА́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каму* і *без дап.* Наказаць, паведаміць усім, многім.

**ПАНАКІДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАНАКІ́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае, -аны; *зак.* **1.** *чаго.* Накідаць многа чаго-н. *П. смецця на падлогу.* **2.** *што.* Накінуць, уздзець адно за другім усё, многае.

**ПАНАКЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАНАКЛА́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* і *чаго.* **1.** Накласці на што-н. ці куды-н. вялікую колькасць чаго-н. *П. дроў на машыны.* **2.** Аблажыць многіх падаткамі.

**ПАНАКЛЕ́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* і *чаго.* Наклеіць што-н. у розных месцах, наклеіць многа чаго-н. *П. маркі. П. цацак з паперы.*

**ПАНАКО́ЛВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *чаго.* Накалоць многа чаго-н. *П. дроў.* **2.** *што.* Пракалоць у многіх месцах. *П. слівы для варэння.* **3.** *каго-што.* Насадзіць на што-н. вострае ўсё, многае, або ўсіх, многіх. *П. матылёў на шпількі.*

**ПАНАКО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* Накапа́ць вялікую колькасць. *П. ям. П. бульбы.*

**ПАНАКО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* Накасіць чаго-н. у дастатковай або вялікай колькасці. *П. сена.*

**ПАНАКРЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Накрыць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. дзяцей. П. сталы.*

**ПАНАКУПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны *і* **ПАНАКУ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* Накупіць многа чаго-н. *П. тавараў.*

**ПАНАЛЕ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны *і* **ПАНАЛЯПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Наляпіць чаго-н. у розных месцах або на многіх прадметах. **2.** *чаго.* Вырабіць лепкай вялікую колькасць чаго-н. *П. фігурак з пластыліну.*

**ПАНАЛІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Напоўніць усю або нейкую колькасць пасуды чым-н. вадкім. *П. бочкі вадой.* **2.** *чаго.* Разліць якую-н. вадкасць у многіх месцах. *П. чарніла на стол.*

**ПАНАЛІПА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв., -а́е; *зак.* Наліпнуць у многіх месцах, у вялікай колькасці. *Паналіпала* (безас.) *гразі да колаў* або *на колы.*

**ПАНАЛЯТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. мн. не ўжыв.*). Наляцець, прыляцець у вялікай колькасці. *Паналятала мух у хату.* **2.** Напасці, зрабіць набег — пра ўсіх, многіх.

**ПАНА́МА**[1], -ы, *мн.* -ы, -на́м, *ж.* Летні шыракаполы саламяны або з матэрыі капялюш. ‖ *памянш.* **пана́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* ‖ *прым.* **пана́мны**, -ая, -ае.

**ПАНА́МА**[2], -ы, *ж.* (кніжн.). Буйное махлярства, звязанае з подкупам вышэйшых чыноўнікаў і іншымі злоўжываннямі. ‖ *прым.* **пана́мскі**, -ая, -ае.

**ПАНАМО́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* і *чаго.* Нама́таць усё, многае. *П. клубкі нітак.*

**ПАНАМО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што* і *чаго.* Намачыць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. канаплі.* **2.** *што* і *чаго.* Мочачы, прыгатаваць многа чаго-н. *П. яблыкаў.*

**ПАНАМЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *чаго.* Намыць, памыць вялікую колькасць чаго-н. *П. бялізны.* **2.** *чаго* і *што.* Нанесці хвалямі многа чаго-н. *П. дамбы.* **3.** *чаго.* Здабыць у вялікай колькасці. *П. золата.*

**ПАНАМЯРЗА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв., -а́е; *зак.* Намерзнуць у вялікай колькасці або ў многіх месцах. *Панамярзала* (безас.) *лёду каля калодзежа.*

**ПАНАНІ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Нанізаць адно за другім усё, многае ці ўсіх, многіх. *П. пацеркі на нітку.*

**ПАНАНО́СІЦЬ**, -о́шу, -о́сіш, -о́сіць *і* **ПАНАНО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** *чаго.* Прынесці за некалькі прыёмаў многа чаго-н. *П. дроў да печы.* **2.** *чаго.* Сваім рухам нанесці многа чаго-н., утварыць што-н. *Вецер пананосіў лісця ў сенцы.* **3.** *што* і *чаго.* Нанесці на паперу, карту, схему ўсё, многае. *П. населеныя пункты на карту.*

**ПАНАПАЎЗА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; *зак.* Напаўзці куды-н. у вялікай колькасці. *Панапаўзала мурашак на хлеб.*

**ПАНАПІВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Напіцца — пра ўсіх, многіх. *Дзеці панапіваліся малака.*

**ПАНАПІ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* і *чаго.* Напісаць вялікую колькасць чаго-н.; напісаць у многіх месцах або на многіх прадметах. *П. пісьмы знаёмым.*

**ПАНАПЛЯТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., чаго.* Наплесці вялікую колькасць чаго-н. *П. вянкоў.*

**ПАНАПЯКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., чаго.* Напячы многа чаго-н. *П. рознага печыва.*

**ПАНАРАБЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., чаго.* Нарабіць, вырабіць вялікую колькасць чаго-н. *П. цацак з гліны.*

**ПАНАРА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Каркас, аснова калёс. **2.** Калёсы без драбін. ‖ *прым.* **панара́дны**, -ая, -ае.

**ПАНАРАЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *чаго.* Нарэзаць многа чаго-н. *П. дроў.* **2.** *што* і *чаго.* Падзяліць шляхам межавання ўсё, многае або выдзеліць у час межавання вялікую колькасць чаго-н. *П.*

*агароды.* **3.** *што* і *чаго.* Нарабіць нарэзаў, разьбы на ўсім, многім ці зрабіць разьбой многа чаго-н. *П. балты. П. узораў.* **4.** *што.* Назубіць усё, многае. *П. пілы.* **5.** *што.* Намуляць што-н. у многіх месцах або ўсё, многае. *П. ногі ботамі.*

**ПАНАРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́м, *ж.* **1.** Від мясцовасці з вышыні. *П. горада.* **2.** Вялікіх памераў карціна з аб'ёмнымі прадметамі на першым плане, змешчаная ўнутры круглага будынка з верхнім асвятленнем. *П. Мінскага «катла».* **3.** Аптычная прылада для павелічэння дакладнасці наводкі гарматы (спец.). ‖ *прым.* **панара́мны**, -ая, -ае. *Панарамны фільм* (шырокаэкранны фільм, які дэманструецца на вялікім паўкруглым экране).

**ПАНАРАСТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв., -а́е; *зак.* **1.** пераважна *безас.* Вырасці ў вялікай колькасці. *З вясны дажджыла, і ўсюды панарасталі добрыя травы.* **2.** Утварыцца ў выглядзе нарасту ў многіх месцах.

**ПАНАРЫВА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *зак., чаго.* **1.** Нарваць[1] вялікую колькасць чаго-н. *П. букеты кветак.* **2.** Парваць многа чаго-н. *П. паперы.*

**ПАНАРЫВА́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. адз. і мн. не ўжыв., -а́е; -а́ла; *зак.* Нарваць[2], нагнаіцца — пра ўсё, многае. *Пальцы панарывалі.*

**ПАНАРЫВА́ЦЬ**[3], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., чаго.* Нарыць чаго-н. у вялікай колькасці або ў многіх месцах. *Дзікі панарывалі зямлі.*

**ПАНАСА́ДЖВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *чаго.* Насадзіць[1] вялікую колькасць якіх-н. раслін. *П. дрэў.* **2.** *каго-чаго.* Змясціць, размясціць дзе-н. вялікую колькасць каго-н, чаго-н. *П. людзей на аўтамашыну. П. булак у печ.*

**ПАНАСА́ДЖВАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Насадзіць[2], шчыльна надзець на што-н. усё, многае. *П. сякеры і малаткі.*

**ПАНАСВІДРО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., чаго.* Насвідраваць вялікую колькасць адтулін.

**ПАНАСІ́ЦЬ**, -нашу́, -но́сіш, -но́сіць; -но́шаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Перанесці з аднаго месца ў другое ўсіх, многіх ці ўсё, многае. *П. сена ў копы.* **2.** *што.* Давесці да непрыгоднага для нашэння стану (пра вопратку, абутак; разм.). **3.** *каго-што.* Ходзячы на працягу якога-н. часу, патрымаць на руках каго-, што-н. *П. дзіця.* **4.** *што.* Пахадзіць у чым-н., у якім-н. адзенні. *П. сястрыну сукенку.*

**ПАНАСКВА́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* Наскварыць многа, для многіх.

**ПАНАСМА́ЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* Насмажыць многа чаго-н. *П. мяса на ўсю брыгаду.*

**ПАНАСТАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *чаго.* Паставіць вялікую колькасць чаго-н.; набудаваць многа чаго-н. *П. слупоў. П. новых хат.* **2.** *што.* Нацэліць куды-н. усё, многае. *П. рэвальверы на каго-н.* **3.** *што.* Зрабіць стаячым усё, многае. *П. каўняры.*

**ПАНАСУ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., чаго.* Насушыць многа чаго-н. *П. грыбоў.*

**ПАНАСЫЛА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Наслаць[1], прыслаць вялікую колькасць каго-, чаго-н. *П. людзей на рамонт дарогі.*

**ПАНАСЫПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Насыпаць чаго-н. у многіх месцах, усюды ці ў вялікай колькасці. *П. курганы. За ноч панасыпала* (безас.) *снегу.* **2.** *што.* Сыплючы, напоўніць усё, многае. *П. збожжа ў мяхі.*

**ПАНАСЯКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць вялікую колькасць насечак на чым-н. *П. напільнікі.* **2.** *чаго.* Насячы, ссячы вялікую колькасць чаго-н. *П. жэрдак.*

**ПАНАТО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Натачыць, навастрыць усё, многае. *П. нажы.* **2.** *чаго.* Вытачыць на станку вялікую колькасць чаго-н. *П. верацён.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *чаго.* Нагрызці вялікую колькасць чаго-н. (пра грызуноў, насякомых). *Мышы паначочвалі саломы.*

**ПАНАТРАСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., чаго.* **1.** Трасучы, сабраць вялікую колькасць чаго-н. *П. груш.* **2.** Натрэсці чаго-н. у многіх месцах. *П. саломы на зямлю.*

**ПАНАТЫКА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *чаго.* Натыкаць чаго-н. у якой-н. колькасці. *П. іголак у падушачку.* **2.** *каго-чаго* і *што.* Накалоць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. матылькоў на іголкі.*

**ПАНАТЫКА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., чаго.* Наткаць многа чаго-н. *П. палатна.*

**ПАНАЦІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Нацерці, намазаць чым-н. усё, многае. *П. рукі шкіпінарам.* **2.** *што.* Начысціць да глянцу усё, многае. *П. паркет.* **3.** *што.* Пашкодзіць трэннем усё, многае; нацерці на чым-н. многа чаго-н. *П. ногі. П. мазалі на руках.* **4.** *чаго.* Нарыхтаваць трэннем вялікую колькасць чаго-н. *П. канапель.*

**ПАНАЦЭ́Я**, -і, *ж.* (кніжн.). Уяўны сродак, які нібыта лечыць усе хваробы (у алхімікаў). *П. ад усіх бед* (перан., іран.).

**ПАНАЦЯ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Нацягваючы, напяць усё, многае. *П. вяроўкі.* **2.** *што.* Надзець на сябе многа чаго-н., накрыцца чым-н. — пра ўсіх, многіх (разм.). *Дзеці панацягвалі на сябе коўдры.* **3.** *чаго.* Прыцягнуць, прынесці за некалькі прыёмаў вялікую колькасць чаго-н. (разм.). *П. галля.*

**ПАНАЧЫШЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *чаго.* Чысцячы, нарыхтаваць многа чаго-н. *П. рыбы.* **2.** *што.* Начысціць, вычысціць усё, многае. *П. гузікі мундзіраў.*

**ПАНАЧЭ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны *і* (разм.) **ПАНАЧАПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што* і *чаго.* Начапіць на каго-, што-н. усё, многае або ў вялікай колькасці. *П. вёдры на крукі. П. шаблі.*

**ПАНАШЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* і *чаго.* **1.** Нашыць вялікую колькасць чаго-н. *П. сукенак.* **2.** Прышыць многа зверху чаго-н. *П. кішэні на камбінезон.*

**ПАНАЯДА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Наесціся — пра ўсіх, многіх. *Усе панаядаліся ўдосталь.*

**ПАНАЯЗДЖА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Наехаць, з'ехацца ў адно месца ў вялікай колькасці. *Панаязджала шмат людзей на кірмаш.*

**ПА́НДА**, -ы, *ДМ* па́ндзе, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Два віды млекакормячых жывёлін атрада драпежных: вялікая панда, або бамбукавы мядзведзь (сямейства мядзведзяў), і малая панда (сямейства янотавых). ‖ *прым.* **па́ндавы**, -ая, -ае.

**ПА́НДУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Нахіленая пляцоўка, якая замяняе лесвіцу, а таксама служыць для ўезду аўтамашын і экіпажаў на мост, у гараж і пад.

**ПАНДЭМІ́Я**, -і, *ж.* Павальная эпідэмія, што ахоплівае вялікія рэгіёны, цэлыя краіны. ‖ *прым.* **пандэмі́чны**, -ая, -ае.

**ПАНЕГІ́РЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн.). **1.** У антычныя часы: красамоўная прамова хвалебнага зместу, у тым ліку ў літаратурным творы. **2.** *перан.* Празмерная пахвала; хвалебны водзыў аб кім-, чым-н. ‖ *прым.* **панегі́рычны**, -ая, -ае.

**ПАНЕГІРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто складае, гаворыць панегірыкі.

**ПАНЕ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Незамужняя дачка пана. **2.** Маладая дзяўчына. ‖ *памянш.-ласк.* **пане́начка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ПАНЕРВАВА́ЦЦА** *гл.* нервавацца.

**ПАНЕ́СЦІ** *гл.* несці[1].

**ПАНЕ́СЦІСЯ**, -нясу́ся, -нясе́шся, -нясе́цца; -нясёмся, -несяце́ся, -нясу́цца; -нёсся, -не́слася *і* -нясла́ся, -не́слася *і* -нясло́ся; -нясі́ся; *зак.* Пачаць несціся[1]. *Коннік панёсся да лесу. Панеслася песня. Чуткі панесліся па вёсках.*

**ПА́НІ** *гл.* пан.

**ПАНІБРА́ЦТВА**, -а, *н.* Залішняя бесцырымоннасць, фамільярнасць у абыходжанні з кім-н. ‖ *прым.* **панібра́цкі**, -ая, -ае.

**ПАНІЖЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* **1.** Зрабіцца ніжэйшым або размясціцца ніжэй. *Чалавек ад страху паніжэў. Сонца паніжэла.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паменшыцца (пра ўзровень, інтэнсіўнасць і пад.). *Напружанне току паніжэла.*

**ПАНІ́ЗІЦЦА**, -ні́жуся, -ні́зішся, -ні́зіцца; *зак.* Зрабіцца больш нізкім (у 2, 3 і 7 знач.). *Паспяховасць студэнтаў панізілася. Цэны панізіліся. Узровень вады панізіўся.* ‖ *незак.* **паніжа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **паніжэ́нне**, -я, *н.*

**ПАНІ́ЗІЦЬ**, -ні́жу, -ні́зіш, -ні́зіць; -ні́жаны; *зак., каго-што.* Зрабіць больш

нізкім (у 2, 3 і 7 знач.). *П. цэны. П. узровень вады. П. каго-н. па пасадзе. П. напружанне ў электрасетцы. П. гук.* ◊ **Панізіць голас** — пачаць гаварыць цішэй, ціха. ‖ *незак.* **паніжáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **паніжэ́нне**, -я, *н.; прым.* **паніжáльны**, -ая, -ае (спец.). *Паніжальная падстанцыя.*

**ПАНІЗÓЎЕ**, -я, *н.* Мясцовасць па ніжнім цячэнні ракі. ‖ *прым.* **панізóвы**, -ая, -ае.

**ПÁНІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* Непераадолены жах і разгубленасць, якія адразу авалодваюць чалавекам або мноствам людзей. *Людзі кідаліся ў паніцы хто куды. У варожым стане пачалася п.* ‖ *прым.* **панíчны**, -ая, -ае.

**ПАНІКАВÁЦЬ**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; *незак.* (разм.). Паддавацца паніцы, моцна хваляваицца.

**ПАНІКАДЗÍЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Люстра або кандэлябр у царкве. ‖ *прым.* **панікадзíльны**, -ая, -ае.

**ПАНІКЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто паддаецца паніцы, распаўсюджвае яе. ‖ *ж.* **панікёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **панікёрскі**, -ая, -ае.

**ПАНІКЁРСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* (разм., неадабр.). Упадаць у паніку. ‖ *наз.* **панікёрства**, -а, *н.*

**ПАНÍКЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Схілены, прыгнуты. *Паніклая ад гарачыні расліннасць.* **2.** *перан.* Прыгнечаны; разбіты духоўна. *Чалавек стаяў п. Выгляд у жанчыны быў п. і разгублены.* ‖ *наз.* **панíкласць**, -і, *ж.*

**ПАНÍКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; панíк, -кла; -ні; *зак.* **1.** *гл.* нікнуць. **2.** *перан.* Паддацца прыгнечанаму настрою; стаць духоўна разбітым. *Пасля пачутых слоў чалавек адразу панік.*

**ПАНІХÍДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -хíд, *ж.* Царкоўная служба па нябожчыку. ○ **Грамадзянская паніхіда** — сход перад пахаваннем, прысвечаны памяці памерлага, жалобны мітынг. ‖ *прым.* **паніхíдны**, -ая, -ае. *П. настрой* (перан.).

**ПАНÍЧ**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Сын пана; малады пан. **2.** Пра спешчанага чалавека, беларучку (разм.). *Ходзіць панічом, працаваць не хоча.*

**ПАНÍЧНЫ** *гл.* паніка.

**ПАНÍШЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што.* Знішчыць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. тараканаў.*

**ПÁННА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Незамужняя дачка пана. **2.** Маладая дзяўчына, якая належала да прывілеяваных пластоў грамадства ў дарэвалюцыйны час. ‖ *памянш.-ласк.* **пáнначка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ПАНÓ**, *нескл., н.* **1.** Паверхня на сцяне, столі, акаймаваная рамкаю, бардзюрам, арнаментам, гладкая або з жывапіснымі, скульптурнымі вúдарысамі. **2.** Карціна на палатне, якая пастаянна займае які-н. участак сцяны.

**ПАНÓК**, -нкá, *мн.* -нкí, -нкóў, *м.* **1.** Небагаты пан. **2.** Форма ветлівага звароту да пана. *П., ці ж я вінаваты?*

**ПАНÓПТЫКУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музей васковых фігур і розных рэдкасцей.

**ПАНÓС**, -у, *м.* Расстройства дзейнасці кішэчніка з частымі вадкімі экскрэментамі. ‖ *прым.* **панóсны**, -ая, -ае.

**ПАНÓШАНЫ**, -ая, -ае. Пра адзенне: які быў ва ўжытку, такі, які ўжо насілі. *П. капялюш.* ‖ *наз.* **панóшанасць**, -і, *ж.*

**ПАНСІЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У дарэвалюцыйнай Расіі і ў замежных краінах: закрытая сярэдняя навучальная ўстанова з інтэрнатам і поўным забеспячэннем вучняў. *П. шляхетных дзяўчат.* **2.** Тое, што і *пансіянат* (уст.). **3.** Утрыманне на поўным забеспячэнні таго, хто жыве ў каго-н. *Пакой з пансіёнам. Жыць на поўным пансіёне.* ‖ *прым.* **пансіённы**, -ая, -ае.

**ПАНСІЯНÁТ**, -а, *М* -нáце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дом адпачынку або гасцініца з поўным забеспячэннем тых, хто жыве ў ёй. *Курортны п.* ‖ *прым.* **пансіянáцкі**, -ая, -ае (разм.).

**ПАНСЛАВÍЗМ**, -у, *м.* Палітычная плынь 19 — пач. 20 ст., якая імкнулася да палітычнага і духоўнага аб'яднання славянскіх народаў. ‖ *прым.* **панславíсцкі**, -ая, -ае *і* **панславя́нскі**, -ая, -ае.

**ПÁНСТВА**, -а, *н.* **1.** *зб.* Паны. **2.** Панаванне, улада паноў. **3.** Спешчанасць, імкненне жыць у раскошы, пагардлівыя адносіны да працы.

**ПÁНТАВЫ** *гл.* панты.

**ПАНТАЛÓНЫ**, -аў. **1.** Тое, што і *штаны* (уст.). **2.** Частка ніжняй жаночай бялізны ў выглядзе трусоў свабоднага крою.

**ПАНТАЛЫ́К**, -у, *м.* (разм.). У выразах: **збіцца з панталыку** — 1) збянтэжыцца, зблытацца, страціць разуменне; 2) пачаць весці няправільны спосаб жыцця; **збіць з панталыку** — 1) выклікаць замяшанне, заблытаць; 2) прымусіць адступіць ад правільных думак, меркаванняў; штурхнуць на што-н. нядобрае.

**ПАНТАМÍМА**, -ы, *мн.* -ы, -тамíм, *ж.* Мімічны спектакль без слоў. ‖ *прым.* **пантамíмны**, -ая, -ае *і* **пантамімíчны**, -ая, -ае.

**ПАНТАНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ваеннаслужачы інжынерных войск, які займаецца навядзеннем і абслугоўваннем пантонаў. ‖ *прым.* **пантанёрскі**, -ая, -ае.

**ПАНТÓН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Плоскадоннае судна, якое служыць апорай для наплаўнога моста, якіх-н. часовых збудаванняў. **2.** Плывучы мост. *Навесці п. цераз раку.* ‖ *прым.* **пантóнны**, -ая, -ае.

**ПАНТÓФЛІ**, -фель *і* -фляў, *адз.* пантóфель, -фля, *м. і* пантóфля, -і, *ж.* Дамашнія туфлі, звычайна без заднікаў; шлёпанцы.

**ПÁНТЫ**, -аў. Маладыя рогі маралаў, якія выкарыстоўваюцца для вырабу лекавых сродкаў. ‖ *прым.* **пáнтавы**, -ая, -ае.

**ПАНТЭÍЗМ**, -у, *м.* Рэлігійна-філасофскія погляды, паводле якіх Бог атаясамліваецца з прыродай. ‖ *прым.* **пантэістычны**, -ая, -ае.

**ПАНТЭÍСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік пантэізму. ‖ *ж.* **пантэíстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **пантэíсцкі**, -ая, -ае.

**ПАНТЭÓН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Манументальны будынак — месца пахавання славутых дзеячаў. **2.** У старажытных грэкаў і рымлян: храм, прысвечаны ўсім багам. **3.** Сукупнасць багоў якой-н. рэлігіі (кніжн.).

**ПАНТЭ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -тэ́р, *ж.* Буйны драпежнік сямейства кашэчых з плямістай поўсцю; леапард.

**ПАНУКÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе *і* **ПАНУ́КВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго (што).* Прымушаць рабіць што-н. хутчэй, падганяць (першапачаткова вокрыкам «ну», звернутым да каня). *П. каня. Гэтых хлопцаў не трэба п. у рабоце.* **2.** *кім.* Дэспатычна распараджацца кім-н. *П. падлеткамі.* ‖ *наз.* **панукáнне**, -я, *н. і* **пану́кванне**, -я, *н.*

**ПАНУ́РЫ**, -ая, -ае. **1.** Хмурны, няветлівы, бязрадасны. *П. стары. П. погляд.* **2.** *перан.* Які выклікае бязрадаснае пачуццё. *Панурыя думкі.* **3.** З апушчанай галавой, паніклы. *Вакол труны стаялі панурыя людзі.* ‖ *наз.* **пану́расць**, -і, *ж.*

**ПАНУ́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Хмурны, няветлівы. *П. чалавек.* ‖ *наз.* **пану́рыстасць**, -і, *ж.*

**ПАНУ́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* Тужліва, панура схіліць галаву. *Сядзець панурыўшыся.*

**ПАНУ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* У выразе: **панурыць галаву** — тужліва схіліць галаву.

**ПАНУ́ЮЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае ўладу, знаходзіцца на чале ўлады. *Пануючыя класы.* **2.** Які пераважае, найбольш распаўсюджаны. *Пануючая парода дрэў.* **3.** Які ўзвышаецца над чым-н. *Пануючая вышыня.*

**ПАНЦÁК**, -ý, *м.* (разм.). Круглыя ячныя крупы, а таксама суп з такіх круп.

**ПÁНЦЫР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Металічнае адзенне для засцярогі тулава ад удараў халоднай зброі (уст.). *Рыцары ў панцырах.* **2.** Цвёрдае покрыва некаторых жывёлін. *Чарапашы п.* ‖ *прым.* **пáнцырны**, -ая, -ае.

**ПАНЧÓХІ**, -чóх, *адз.* панчóха, -і, *ДМ* -чóсе, *ж.* Выраб машыннага або ручнога вязання, які надзяваецца на ногі і заходзіць за калені. *Капронавыя п. Конь у панчохах* (перан.: з белай, светлай поўсцю на ніжніх частках ног; спец.). ‖ *памянш.* **панчóшкі**, -шак, *адз.* панчóшка, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* ‖ *прым.* **панчóшны**, -ая, -ае.

**ПАНЧÓШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Майстар па вырабе панчох. ‖ *ж.* **панчóшніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПÁНШЧЫНА**, -ы, *ж.* **1.** Пры прыгонным праве: дармавая прымусовая праца сялян на пана. *Адбываць паншчыну.* **2.** Прыгоннае права (разм.). ‖ *прым.* **пáншчынны**, -ая, -ае.

**ПАНЭ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Дарожка для пешаходаў па баках вуліцы; тратуар. **2.** Драўляная абшыўка або афарбоўка (першапачаткова — пад дрэва) ніжняй часткі сцен памяшкання (спец.). *Па-*

*нэлі, размаляваныя пад дуб.* **3.** У зборным будаўніцтве: жалезабетонная або драўляная пліта, якая з'яўляецца гатовым элементам збудавання (спец.). **4.** *перан.* У некаторых выразах: пра занятак прастытуцыяй. *Пайсці на п.* (стаць прастытуткай). ‖ *прым.* **пане́льны**, -ая, -ае.

**ПАНЭЛЯВО́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грузавы аўтамабіль-платформа для перавозкі панэлей (у 4 знач.). ‖ *прым.* **панэлявóзны**, -ая, -ае.

**ПАНЮ́Х**, -у, *м.* У выразе: **ні за панюх табакі** (разм.) — ні за што, дарэмна (прапасці, загінуць).

**ПАНЮ́ХАЦЬ** *гл.* нюхаць.

**ПАНЮ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Невялікая колькасць табакі, разлічаная на адзін нюх.

**ПАНЯВЕ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Сумненне, страта веры. *Годзе жыць у паняверцы!*

**ПАНЯВО́ЛІ**, *прысл.* Насуперак жаданню, незалежна ад яго. *Згадзіцца п.*

**ПАНЯТЫ́**, -óга, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.* (афіц.). Асоба, якая запрашаецца органамі ўлады ў якасці сведкі пры вобыску, вопісе маёмасці і пад. *Запрасіць панятых.*

**ПАНЯ́ЦЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Лагічна аформленая думка аб прадмеце, з'яве; ідэя чаго-н. *П. прыбавачнай вартасці.* **2.** Уяўленне, звесткі пра што-н. *Даць п. пра што-н. Мець п. аб чым-н.* **3.** звычайна *мн.* Спосаб, узровень разумення чаго-н. *Паводле нашых паняццяў усё гэта павінна быць па-іншаму.* ‖ *прым.* **паняційны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПАНЯ́ЦЬ**, пайму, поймеш, пойме, *зак., каго-што.* У выразе: **паняць моду** (разм.) — панадзіцца, прывыкнуць да чаго-н. (непажаданага). *Паняў моду гуляць у карты.*

**ПА́ПА**, -ы, *мн.* -ы, пап, *м.* Вярхоўны галава каталіцкай царквы і дзяржавы Ватыкан. *Рымскі П.* ‖ *прым.* **па́пскі**, -ая, -ае.

**ПАПАБЕ́ГАЦЬ** *і* **ПАПАБЕ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Бегаць доўга, неаднаразова. *П. за каровамі.*

**ПАПАБЛУДЗІ́ЦЬ**, -уджу́, -у́дзіш, -у́дзіць; *зак.* (разм.). Блудзіць доўга, неаднаразова. *Во папаблудзілі мы ў лесе.*

**ПАПАВАДЗІ́ЦЬ**, -ваджу́, -вóдзіш, -вóдзіць *і* **ПАПАВО́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Вадзіць доўга, неаднаразова; павадзіць многа каго-, чаго-н. *Колькі ён папавадзіў (-воджваў) турыстаў.*

**ПАПАВАЗІ́ЦЬ**, -важу́, -вóзіш, -вóзіць *і* **ПАПАВО́ЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Вазіць доўга, неаднаразова; павазіць многа каго-, чаго-н. *Колькі я папавазіў (папавожваў) гэтых дроў.*

**ПАПАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -ва́рыш, -ва́рыць *і* **ПАПАВА́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Варыць доўга, неаднаразова; паварыць многа чаго-н. *Давялося п. грыбоў.*

**ПАПАВУЧЫ́ЦЬ**, -учу́, -у́чыш, -у́чыць *і* **ПАПАВУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што* (разм.). Доўга вучыць; павучыць многіх.

**ПАПАГАЛАСІ́ЦЬ**, -лашу́, -лóсіш, -лóсіць *і* **ПАПАГАЛО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Галасіць доўга, неаднаразова.

**ПАПАГАНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., каго-што* (разм.). Ганяць доўга, неаднаразова. *Колькі плытоў я папаганяў.*

**ПАПАГАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *зак.* (разм.). Гараваць доўга. *Папагараваў ён за сваё жыццё.*

**ПАПАГУЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **ПАПАГУ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Гуляць доўга, неаднаразова. *Папагуляў (папагульваў) на вяселлях.*

**ПАПАДА́ННЕ** *гл.* папасці.

**ПАПАДА́ЦЦА** *гл.* папасціся.

**ПАПА́ДАЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ае; -аем, -аеце, -аюць; *зак.* Упасці ў вялікай колькасці або многа разоў, адзін за другім. *З паліцы пападалі кніжкі.*

**ПАПАДА́ЦЬ** *гл.* папасці.

**ПАПАДВЕ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Падвесіць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. лямпы.*

**ПАПАДВЯ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Падвязаць усё, многае. *П. памідоры.*

**ПАПАДВЯЧО́РКАВАЦЬ** *гл.* падвячоркаваць.

**ПАПАДДЗЯ́**, -і́, *мн.* -і́, -е́й, *ж.* (разм.). Жонка папа.

**ПАПАДЗЮ́К**, -а́, *мн.* -і́, -óў, *м.* (разм.). Сын папа.

**ПАПАДЗЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Дачка папа.

**ПАПАДКЛЕ́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Падклеіць усё, многае. *П. старонкі ў кніжцы.*

**ПАПАДКО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Падкаціць усё, многае (*гл.* падкаціць у 1 знач.). *П. бярвенне да сцяны.*

**ПАПАДКРЭ́СЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Падкрэсліць усё, многае. *П. складаныя словы ў сказе.*

**ПАПАДКУ́РЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Падкурчыць (ногі) — пра ўсіх, многіх. *П. ногі.*

**ПАПАДПІ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Падпісаць усё, многае або усіх, многіх. *П. заявы на адпачынак.*

**ПАПАДПЯРА́ЗВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Падперазацца — пра ўсіх, многіх.

**ПАПАДПЯРА́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Падперазаць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАПАДРЫЖА́ЦЬ**, -жу́, -жы́ш, -жы́ць; -жы́м, -жыце́, -жа́ць; -жы́; *зак.* (разм.). Дрыжаць доўга, неаднаразова. *П. на марозе.*

**ПАПАДСО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Падсунуць многае пад што-н. *П. скрынкі пад шафу.*

**ПАПАДСЦІЛА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што* і *чаго.* Падаслаць[1] усіх, многіх, усё, многае або ўсім, многім.

**ПАПАДТЫКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Падаткнуць усё, многае.

**ПАПАДЦІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* Падцерці ўсё, многае. *П. лужыны на падлозе.*

**ПАПАДЦЯ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Падцягнуць усіх, многіх ці ўсё, многае. *П. папружкі.*

**ПАПАЕ́ЗДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *зак.* (разм.). Ездзіць доўга, неаднаразова. *За жыццё давялося папахадзіць і п. у розныя гарады.*

**ПАПАЕ́СЦІ**, -е́м, -ясі́, -е́сць; -ядзі́м, -ясце́, -яду́ць; папае́ў, -е́ла; папае́ш *і* **ПАПАЯДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., чаго* (разм.). Есці доўга, неаднаразова; з'есці многа чаго-н. *Ну мы і папаелі ў гасцях!*

**ПАПАЗБІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ПАПАЗБІ́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што* і *чаго* (разм.). Збіраць доўга, неаднаразова; сабраць многа чаго-н. *Вось тут мы грыбоў папазбіралі (папазбірвалі).*

**ПАПАЗДЗЕ́КАВАЦЦА**, -куюся, -куешся, -куецца; -куйся; *зак., з каго-чаго* (разм.). Здзекавацца доўга, неаднаразова. *Беднае хлапчанё, папаздзекаваліся з яго людзі.*

**ПАПАЗНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -пóзніцца; -пóзнімся, -пóзніцеся, -пóзняцца; *зак.* (разм.). Спазніцца — пра ўсіх, многіх. *З-за электрычкі многія папазніліся на работу.*

**ПАПА́ЙЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Трапічнае дрэва з жаўтавата-зялёнымі пладамі, якія нагадваюць дыню.

**ПАПАКАЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Калець доўга, неаднаразова. *П. на холадзе.*

**ПАПАКАСІ́ЦЬ**, -кашу́, -кóсіш, -кóсіць *і* **ПАПАКО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што* і *без дап.* (разм.). Пакасіць доўга, неаднаразова. *За апошнія гады папакасіў (папакошваў) розных траў.*

**ПАПАКРА́СЦІ**, -а́ду, -а́дзеш, -а́дзе *і* **ПАПАКРАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ПАПАКРА́ДВАЦЬ**, -дваю, -дваеш, -двае; *зак., каго-што* і *чаго* (разм.). Красці многа, неаднаразова; пакрасці многа каго-, чаго-н. *Колькі ў той год папакралі (папакрадалі) коней!*

**ПАПАКРУЦІ́ЦЦА**, -ручу́ся, -ру́цішся, -ру́ціцца *і* **ПАПАКРУ́ЧВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Круціцца доўга, неаднаразова. *Прыйшлося нам тады п.*

**ПАПАКУ́ТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; *зак.* Пакутаваць некаторы час. *Папакутаваў у палоне небарака.*

**ПАПАЛАВІ́ЦЬ**, -лаўлю́, -лóвіш, -лóвіць *і* **ПАПАЛО́ЎЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што* і *чаго* (разм.). Лавіць доўга, неаднаразова; палавіць многа каго-, чаго-н. *П. рыбкі.*

**ПАПАЛА́ЗІЦЬ**, -ла́жу, -ла́зіш, -ла́зіць *і* **ПАПАЛА́ЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Лазіць доўга, неаднаразова. *П. па гарах.*

**ПАПАЛА́М**, *прысл.* На дзве роўныя часткі; з дзвюх роўных частак. *Падзяліць маёмасць п.*

**ПАПАЛІ́ЦЬ**, -палю́, -па́ліш, -па́ліць; -па́лены; *зак., што.* Спаліць усё або многае. *Хаты папалілі фашысцкія карнікі.*

**ПАПАЛО́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго (што).* Злёгку напалохаць, папужаць.

**ПАПАЛУ́ДНАВАЦЬ** *гл.* палуднаваць.

**ПАПАЛЯЖА́ЦЬ**, -ляжу́, -ляжы́ш, -ляжы́ць; -ляжы́м, -лежыце́, -ляжа́ць; -ляжы́ *і* **ПАПАЛЕ́ЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Ляжаць доўга, неаднаразова. *П. пасля аварыі.*

**ПАПАЛЯТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ПАПАЛЁТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Лятаць доўга, неаднаразова.

**ПАПАМЕ́РЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -мёрз, -ме́рзла; -ні; *зак.* (разм.). Мерзнуць доўга, неаднаразова. *Папамерзлі ў час дзяжурства.*

**ПАПАМО́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; папамо́к, -кла; -ні; *зак.* (разм.). Мокнуць доўга, неаднаразова.

**ПАПАМУ́ЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца *і* **ПАПАМУ́ЧВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Мучыцца доўга, неаднаразова. *Папамучыліся (папамучваліся) людзі, як вёска згарэла.*

**ПАПАНАСІ́ЦЬ**, -нашу́, -но́сіш, -но́сіць *і* **ПАПАНО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-чаго* (разм.). Насіць доўга, неаднаразова; панасіць многа каго-, чаго-н. *Папанасіць (папаношваць) вады, дроў.*

**ПАПАПА́СВІЦЬ**, -пасу́, -пасе́ш, -пасе́; -пасём, -пасяце́, -пасу́ць *і* **ПАПАПА́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго.* Пасвіць доўга, неаднаразова. *Папапасвіў (і папапасваў) кароў.*

**ПАПАПІ́ЦЬ**, -п'ю́, -п'е́ш, -п'е́; -п'ём, -п'яце́, -п'ю́ць; -пі́ў, -піла́, -ло́ *і* **ПАПАПІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., чаго* (разм.). Піць неаднаразова; папіць многа чаго-н. *Папапіць (папапіваць) піўка.*

**ПАПАПЛА́КАЦЬ**, -ла́чу, -ла́чаш, -ла́ча; -ла́ч *і* **ПАПАПЛА́КВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Плакаць доўга, неаднаразова. *Папаплакаць (папаплакваць) па бацьку.*

**ПАПАПРАСІ́ЦЬ**, -рашу́, -ро́сіш, -ро́сіць *і* **ПАПАПРО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што* і *чаго* (разм.). Прасіць доўга, неаднаразова.

**ПАПА́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Поле, пакінутае на адно лета незасеяным з мэтай паляпшэння глебы пад пасеў азімых. *Узараць п. Пасвіць жывёлу на папары.* ‖ *прым.* **папа́рны**, -ая, -ае.

**ПАПАРАБІ́ЦЬ**, -раблю́, -ро́біш, -ро́біць *і* **ПАПАРО́БЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што, чаго* і *без дап.* Рабіць многа, доўга, неаднаразова.

**ПАПАРА́ДКАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны; *зак., што.* Прывесці ў парадак, навесці парадак. *П. мэблю.*

**ПАПАРАСКА́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што, чаго, пра каго-што, аб кім-чым, з дадан.* і *без дап.* (разм.). Расказваць доўга, неаднаразова; расказаць многа чаго-н. *П. анекдотаў.*

**ПА́ПАРАТНІК**, -у, *м.* Тое, што і *папараць.* ‖ *прым.* **па́паратнікавы**, -ая, -ае.

**ПА́ПАРАЦЬ**, -і, *ж.* Споравая расліна з буйнымі, шматразова рассечанымі лістамі.

**ПАПА́РНЫ** *гл.* папар.

**ПАПАРО́БЛІВАЦЬ** *гл.* папарабіць.

**ПАПА́РЫЦЦА** *гл.* парыць.

**ПАПАРЭ́ЗАЦЬ**, -э́жу, -э́жаш, -э́жа; -э́ж *і* **ПАПАРЭ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што* і *чаго* (разм.). Рэзаць доўга, неаднаразова. *П. дроў.*

**ПАПА́С**, -у, *м.* **1.** Месца, дзе пасецца жывёла, паша. *Выгнаць карову на п.* **2.** Тое, што і *папаска.*

**ПАПАСВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -ва́рышся, -ва́рыцца *і* **ПАПАСВА́РВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Сварыцца доўга, неаднаразова.

**ПАПА́СВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** Карміць коней у дарозе ў час адпачынку, рабіць папаску. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пасвіцца дзе-н. час ад часу. **3.** *перан.* Мець пажыву, карысць (разм.). *І вы каля яго папасваецеся?*

**ПАПАСЕ́ДЖВАЦЬ** *гл.* папасядзець.

**ПАПАСЕ́ЯЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; -е́й *і* **ПАПАСЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ПАПАСЕ́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., чаго* (разм.). Сеяць доўга, неаднаразова.

**ПАПА́СКА**, -і, *ДМ* -па́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Прыпынак у дарозе для кармлення; яда. *Журавы селі на папаску.*

**ПАПАСМЯЯ́ЦЦА**, -мяю́ся, -мяе́шся, -мяе́цца; -мяёмся, -меяце́ся, -мяю́цца; -ме́йся *і* **ПАПАСМЕ́ЙВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., з каго-чаго* і *без дап.* (разм.). Смяяцца доўга, неаднаразова. *Было з чаго там п.*

**ПАПАСПА́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́ *і* **ПАПАСЫПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* (разм.). Доўга паспаць.

**ПАПАСТАЯ́ЦЬ**, -таю́, -таі́ш, -таі́ць; -таі́м, -таіце́, -тая́ць; -то́й *і* **ПАПАСТО́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Стаяць доўга, неаднаразова. *Прыйшлося папастаяць (папастойваць) у чарзе.*

**ПАПАСТРАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **ПАПАСТРЭ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што, чаго* і *без дап.* (разм.). Страляць многа, неаднаразова; пастраляць, настраляць многа каго-, чаго-н. *П. дзічыны.*

**ПАПА́СЦІ**, -паду́, -падзе́ш, -падзе́; -падзём, -падзяце́, -паду́ць; -па́ў, -па́ла; -падзі́; *зак.* **1.** *у каго-што.* Трапіць у цэль, дасягнуць каго-, чаго-н. чым-н. кінутым, накіраваным. *П. ў цэль. Бомба папала ў дом.* **2.** Апынуцца ў якім-н. месцы, становішчы, абставінах (звычайна выпадкова, нечакана). *П. пад суд. Сена папала пад дождж.* **3.** *безас., каму.* Пра спагнанні, непрыемнасці, якія атрымае або можа атрымаць хто-н. (разм.). *Пападзе табе, хлопча, ад бацькі за такое!* **4.** *прош.* **папа́ла.** У выразах (разм.): **дзе папала** (усё роўна дзе, абы-дзе), **куды папала** (абы-куды), **чым папала** (абы-чым), **што папала** (усё роўна што, абы-што), **як папала** (усё роўна як, у беспарадку, абы-як). ‖ *незак.* **папада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—3 знач.); *наз.* **папада́нне**, -я, *н.* (у 1 знач.). *Прамое п. снарада.*

**ПАПА́СЦІСЯ**, -паду́ся, -падзе́шся, -падзе́цца; -падзёмся, -падзяце́ся, -паду́цца; -па́ўся, -па́лася; -падзі́ся; *зак.* **1.** Апынуцца дзе-н., у якіх-н. абставінах, умовах. *П. ў пастку. П. на вочы каму-н.* (выпадкова прыцягнуць да сябе чыю-н. увагу). **2.** Быць злоўленым на чым-н. *П. на кражы.* **3.** Выпадкова сустрэцца, трапіцца каму-н. (разм.). *П. насустрач.* ‖ *незак.* **папада́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАПАСЫПА́ЦЬ** *гл.* папаспаць.

**ПАПАСЯДЗЕ́ЦЬ**, -джу́, -дзі́ш, -дзі́ць; -дзі́м, -седзіце́, -дзя́ць; -дзі́ *і* **ПАПАСЕ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Пасядзець доўга, неаднаразова. *Колькі ён папасядзеў над гэтымі чарцяжамі.*

**ПАПАСЯЧЫ́**, -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы́ *і* **ПАПАСЯКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што* і *чаго* (разм.). Сячы доўга, неаднаразова. *П. дроў.*

**ПАПАЎДНІ́**, *прысл.* Пасля 12 гадзін дня. *Каля гадзіны п.*

**ПАПАЎНЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* папоўніць. **2.** Тое, чым папаўняецца што-н. (часцей пра войскі, кадры, грошы і пад.). *У батальён прыйшло п.*

**ПАПАЎНЕ́ЦЬ** *гл.* паўнець.

**ПАПАЎНЯ́ЦЦА** *гл.* папоўніцца.

**ПАПАЎНЯ́ЦЬ** *гл.* папоўніць.

**ПАПА́ХА**, -і, *ДМ* -па́се, *мн.* -і, -па́х, *ж.* Высокая футравая шапка. *Генеральская п. Казацкая п.*

**ПАПАХАДЗІ́ЦЬ**, -хаджу́, -хо́дзіш, -хо́дзіць *і* **ПАПАХО́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Хадзіць доўга, неаднаразова.

**ПАПАХВАРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е *і* **ПАПАХВО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Хварэць доўга, неаднаразова. *П. у час эпідэміі грыпу.*

**ПАПА́ХВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* Злёгку, крыху пахнуць чым-н. (звычайна непрыемным). *З куфра папахвала* (безас.) *цвіллю. Мяса папахвае* (пачынае псавацца).

**ПАПАЦЁМКУ**, *прысл.* Без святла, у цемнаце. *Апранацца п.*

**ПАПАЦЯГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ПАПАЦЯ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што* і *чаго* (разм.). Цягаць доўга, неаднаразова; пацягаць многа каго-, чаго-н. *Колькі мы папацягалі (папацягвалі) гэтага бярвення.*

**ПА́ПАЧНЫ** *гл.* папка.

**ПАПАШУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ПАПАШУ́КВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што* і *чаго* (разм.). Шукаць доўга, неаднаразова. *П. цяля ў лесе.*

**ПАПАЯДА́ЦЬ** *гл.* папаесці.

**ПАП'Е́-МАШЭ́**, *нескл., м.* Папяровая маса, змешаная з клеем, гіпсам, з якой

шляхам прасавання вырабляюць розныя прадметы. *Вырабы з п.*

**ПАПЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -пе́р *і* -пе́раў, *ж.* **1.** Матэрыял для пісьма, а таксама для іншых мэт, які вырабляецца з драўнінная ці анучнай масы. **2.** Афіцыйнае пісьмовае паведамленне, дакумент; рукапіс. *Штабныя паперы. Каштоўныя паперы* (грашовыя дакументы). *Корпацца ў паперах.* ◊ **Застацца на паперы** — пра рашэнне, якое не выконваецца. **Папера ўсё вытрымае** (іран.) — напісаць можна ўсё, але не заўсёды ажыццяўляецца тое, пра што напісана. ‖ *памянш.* **папе́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* ‖ *зніж.* **папе́рчына**, -ы, *мн.* -ы, -чын, *ж.* ‖ *прым.* **папяро́вы**, -ая, -ае.

**ПАПЕРААПРАНА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак., у што* і *без дап.* Пераапрануцца — пра ўсіх, многіх.

**ПАПЕРАВАРО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Перавярнуць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. вёдры.*

**ПАПЕРАВО́ДЗІЦЬ**, -о́джу, -о́дзіш, -о́дзіць; *зак., каго-што.* Перавесці ўсіх, многіх або ўсё, многае. *П. дзяцей цераз дарогу. П. электрычкі на запасныя пуці.*

**ПАПЕРАВО́ЗІЦЬ**, -о́жу, -о́зіш, -о́зіць; *зак., каго-што.* Перавезці з аднаго месца на другое ўсё, многае ці ўсіх, многіх. *П. людзей цераз раку.*

**ПАПЕРАВЯ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Перавязаць усіх, многіх ці ўсё, многае. *П. пакункі.*

**ПАПЕРАГАНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., каго-што.* Перагнаць усіх, многіх ці ўсё, многае. *П. коней на другую пашу. П. лодкі на другі бок ракі.*

**ПАПЕРАГАРА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е *і* **ПАПЕРАГА́РВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *зак.* Перагарэць — пра ўсё, многае. *Лямпачкі паперагаралі (паперагарвалі).*

**ПАПЕРАГАРО́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Перагарадзіць усё, многае.

**ПАПЕРАГРЫЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Перагрызці ўсё, многае. *П. ніткі.*

**ПАПЕ́РАД** (разм.). **1.** *прысл.* Уперад. *Жанчына пайшла п., паказваючы, куды трэба пад'язджаць.* **2.** *прысл.* Спачатку, раней. *П. памый рукі, а потым садзіся за стол.* **3.** *прыназ. з Р.* Ужыв. для ўказання на прадмет ці асобу, раней за якія кім-, чым-н. было ўтворана якое-н. дзеянне. *Ён з'явіўся п. усіх.*

**ПАПЕРАДЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца папярэджаннем, служыць для перасцярогі ад чаго-н. *П. стрэл.* **2.** Вельмі ветлівы, прыязны, паслужлівы. *Папераджальныя адносіны.* ‖ *наз.* **папераджа́льнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПАПЕРАДЖА́ЦЬ** *гл.* папярэдзіць.

**ПАПЕ́РАДЗЕ. 1.** *прысл.* На некаторай адлегласці перад кім-, чым-н. *Ён ішоў п., а мы за ім.* **2.** *прыназ. з Р.* Паказвае на становішча перад кім-, чым-н. *Ісці п. калоны.*

**ПАПЕРАКІДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАПЕРАКІ́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Перакідаць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. каменне пад сцяну.*

**ПАПЕРАКЛАДА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ПАПЕРАКЛА́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Перакласці ўсё, многае ці ўсіх, многіх. *П. у пакоях падлогу.*

**ПАПЕРАКЛАДА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* Перакласці з адной мовы на другую ўсё, многае. *П. творы Якуба Коласа на іншыя мовы.*

**ПАПЕРАКО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Перакапаць усё, многае.

**ПАПЕРАКО́ШВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Перакасіць[1] усё, многае. *П. рамы.*

**ПАПЕРАКО́ШВАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Перакасіць[2] усё, многае. *П. межы.*

**ПАПЕРАКРУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Перакруціць усё, многае.

**ПАПЕРАКРЭ́СЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Перакрэсліць усё, многае. *П. старонкі.*

**ПАПЕРАКУ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Перакусіць усё, многае (*гл.* перакусіць у 1 знач.).

**ПАПЕРАЛА́ЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ла́зіць; -ла́зім, -ла́зіце, -ла́зяць; *зак., што, цераз што* і *без дап.* Пералезці — пра ўсіх, многіх. *П. цераз плот.*

**ПАПЕРАЛЯТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Пераляцаць — пра ўсіх, многіх. *Куры паперапяталі цераз плот.*

**ПАПЕРАМЕ́ННА**, *прысл.* Змяняючы адзін аднаго, па чарзе. *Чытаць п.*

**ПАПЕРАНІЦО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Пераніцаваць усё, многае. *П. адзенне.*

**ПАПЕРАНО́СІЦЬ**, -но́шу, -но́сіш, -но́сіць; *зак., каго-што.* Перанесці ўсё, многае або ўсіх, многіх. *П. дровы пад павець.*

**ПАПЕРАПА́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Перапаліць усё, многае.

**ПАПЕРАПАЎЗА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак., што, цераз што* і *без дап.* Перапаўзці — пра ўсіх, многіх. *Чэрві паперапаўзалі з дрэў на сцяну. Па-пластунску п. дарогу.*

**ПАПЕРАПІ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Перапісаць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. усіх прысутных.*

**ПАПЕРАПЛЫВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак., што, цераз што* і *без дап.* Пераплысці — пра ўсіх, многіх. *Усе пепераплывалі раку.*

**ПАПЕРАПЛЯТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Пераплесці ўсё, многае. *П. часопісы.*

**ПАПЕРАРАЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАПЕРАРЭ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Перарэзаць усё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАПЕРАСА́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Перасадзіць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАПЕРАСУ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Перасушыць усё, многае. *П. бялізну.*

**ПАПЕРАЧЫ́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Перачытаць усё, многае. *П. праграмныя творы.*

**ПАПЕРАШЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Перашыць усё, многае. *П. гузікі.*

**ПАПЕ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** *гл.* папера. **2.** Лісток паперы (у 1 знач.). **3.** Папяровы грашовы знак (разм.).

**ПАПЕ́РЦІ**, -пру́, -прэ́ш, -прэ́; -про́м, -праце́, -пру́ць; -пёр, -пе́рла; -пры́; *зак.* (разм.). **1.** Пачаць перці. **2.** *каго (што).* Выгнаць, груба прагнаць. *Лайдака паперлі з работы.*

**ПАПЕ́РЧЫНА** *гл.* папера.

**ПАПЕ́РЧЫЦЬ** *гл.* перчыць.

**ПАПІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *што.* Піць патроху. *Сядзяць, каву папіваюць.* **2.** Пакрыху, але не часта піць спіртное, п'янстваваць (разм.). *Пачаў п.*

**ПАПІКНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., каго (што).* Выказаць каму-н. незадавальненне, дакор, папракнуць. *Настаўнік папікнуў вучня за легкадумнасць.* ‖ *незак.* **папіка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАПІЛЬЁТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Кавалачак паперы або тканіны, на якую накручваюць пасмы валасоў для завіўкі. ‖ *прым.* **папільётачны**, -ая, -ае.

**ПАПІ́РУС** *м.* **1.** -а *і (зб.)* -у, *мн.* -ы, -аў. Трапічная травяністая расліна сямейства асаковых. **2.** -у. Матэрыял для пісьма, які выраблялся з гэтай расліны егіпцянамі і інш. старажытнымі народамі. *Скруткі папірусу.* **3.** -а, *мн.* -ы, -аў. Рукапіс на такім матэрыяле. ‖ *прым.* **папі́русны**, -ая, -ае *і* **папі́русавы**, -ая, -ае.

**ПАПІСА́ЦЬ**, -пішу́, -пі́шаш, -пі́ша; -пішы́; *зак.* **1.** *што* і *без дап.* Правесці некаторы час за пісаннем чаго-н. **2.** *каго-што.* Занесці ў спіс усё, многае або ўсіх, многіх (разм.). *П. усіх у гурток.* ◊ **Нічога не папішаш** (разм.) — нічога не зробіш, іншага выйсця няма, даводзіцца мірыцца з тым, што ёсць.

**ПАПІ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Час ад часу, зрэдку пісаць. *П. вершы.*

**ПАПІХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак., чым.* Адштурхвацца ад чаго-н. *П. шастом, плывучы ў лодцы.*

**ПАПІХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *каго-што.* Штурхаючы, падштурхваючы, прымушаць ісці або перамяшчаць у якім-н. напрамку. *П. каго-н. у плечы. П. тачку.* **2.** *перан., каго* і *кім.* Абыходзіцца з кім-н. зняважліва, распараджацца кім-н. *Усякі тут будзе п. мяне.*

**ПАПІХА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** Чалавек, якому даручаюць паскорыць якую-н. справу. **2.** Тое, што і *папіхіч.*

**ПАПІ́ХІЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, якім панукаюць, зняважліва распараджаюцца.

**ПАПІ́ЦЬ**, -п'ю́, -п'е́ш, -п'е́; -п'ём, -п'яце́, -п'ю́ць; -піў, -піла́, -ло́; -пі́; *зак., што* і *чаго.* Тое, што і *выпіць. П. малака.*

**ПА́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* Вокладка з кардону, скуры і пад. для папер. *П. для спраў.* ‖ *памянш.* **па́пачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **па́пачны**, -ая, -ае.

**ПАПЛАВЕ́Ц** *гл.* поплаў.

**ПАПЛАВО́К**[1], -лаўка́, *мн.* -лаўкі́, -лаўко́ў, *м.* **1.** Лёгкі плаваючы прадмет, які прымацоўваецца да лёскі, да сеткі або трымаецца на якары. *П. вудачкі. П. невада.* **2.** Прыстасаванне, якое выкарыстоўваецца для надання плывучасці чаму-н. (від лодкі, прагумаваны мех, надзьмуты ветрам і пад.). *Мост на паплаўках.* ‖ *прым.* **паплаво́чны**, -ая, -ае *і* **паплаўко́вы**, -ая, -ае.

**ПАПЛАВО́К**[2] *гл.* поплаў.

**ПАПЛАЎНЫ́** *гл.* поплаў.

**ПАПЛЕ́СЦІСЯ**, -лятуся, -ляце́шся, -ляце́цца; -ляцёмся, -лецяце́ся, -лятуцца; -лёўся, -ляла́ся, -ло́ся; *зак.* Пайсці павольна, не спяшаючыся або з намаганнем.

**ПАПЛЕ́ЦІНА**, -ы, *мн.* -ы, -цін, *ж.* Прут, якім прымацоўваецца салома да лат пры крыцці страхі.

**ПАПЛЕ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Таварыш па справе, саратнік. *Паплечнікі па барацьбе.* ‖ *ж.* **паплечніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАПЛЁТ**, -у, *М* -лёце, *м., зб.* Пруты, пры дапамозе якіх салома прывязваецца да лат пры крыцці страхі саломай.

**ПАПЛІ́Н**, -у, *м.* Шаўковая, паўшаўковая або баваўняная тканіна з дробным папярочным рубчыкам. ‖ *прым.* **паплі́навы**, -ая, -ае.

**ПАПЛЫСЦІ** *і* **ПАПЛЫ́ЦЬ**, -плыву́, -плыве́ш, -плыве́; -плывём, -плывяце́, -плыву́ць; -плы́ў, -плыла́, -ло́; -плыві́; *зак.* Пачаць плысці, пусціцца ўплаў. *Лодка паплыла ўніз па рацэ. Паплылі гады за гадамі* (перан.).

**ПАПО́ВІЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Сын папа; чалавек, які паходзіць з духоўнага роду.

**ПАПО́ЙКА**, -і, *ДМ* -по́йцы, *мн.* -і, -по́ек, *ж.* (разм.). Гулянка з багатай выпіўкай, п'янка.

**ПАПО́МНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *зак., каго-што* і *з дадан.* Надоўга запомніць (што-н. непрыемнае). *Папомніш, як з такімі звязвацца.*

**ПАПО́ЎНА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (разм.). Дачка папа.

**ПАПО́ЎНАЧЫ**, *прысл.* Пасля 12 гадзін ночы.

**ПАПО́ЎНІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак., чым.* Стаць паўнейшым, павялічыцца. *Атрад папоўніўся новымі байцамі.* ‖ *незак.* **папаўня́цца**, -яецца.

**ПАПО́ЎНІЦЫ**, *прысл.* (разм.). На поўны рот, прагна (есці). *Умінаць п. хлеб.*

**ПАПО́ЎНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што чым.* Павялічыць дабаўленнем новага да чаго-н., што ёсць. *П. роту байцамі. П. свае веды.* ‖ *незак.* **папаўня́ць**, -яю, -яеш, -яе. ‖ *наз.* **папаўне́нне**, -я, *н.*

**ПАПО́ЎСКІ** *гл.* поп.

**ПАПРАБАВА́Ц** *гл.* прабавадь.

**ПАПРАБІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Прабіць, праламаць што-н. у многіх месцах; прайсці праз што-н. з сілай — пра ўсё, многае. *П. палонкі. Крыніцы папрабівалі пясок.* **2.** Пракалоць чым-н. вострым усё, многае. *П. ногі на цвікі.*

**ПАПРАВА́ЛЬВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Праваліцца — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Коні паправальваліся ў балота. П. на ўступных экзаменах.*

**ПАПРА́ВАЧНЫ** *гл.* папраўка.

**ПАПРАВЕ́ЦЬ** *гл.* правець.

**ПАПРА́ВІЦЦА**, -ра́ўлюся, -ра́вішся, -ра́віцца; *зак.* **1.** Выправіць сваю памылку (звычайна пры выказванні). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Палепшыцца, змяніцца на лепшае. *Справы паправіліся.* **3.** Стаць здаравейшым; памажнець. *П. пасля санаторыя.* ‖ *незак.* **папраўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **папра́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 2 і 3 знач.). *Пайшло на папраўку.*

**ПАПРА́ВІЦЬ**, -ра́ўлю, -ра́віш, -ра́віць; -ра́ўлены; *зак.* **1.** *што.* Ліквідаваўшы пашкоджанні, зрабіць прыгодным для карыстання. *П. калёсы.* **2.** *што.* Прывесці да належнага выгляду, парадку. *П. капялюш на галаве.* **3.** *што.* Палепшыць, умацаваць. *П. сваё здароўе.* **4.** *што.* Тое, што і *выправіць*[1] (у 3 знач.). *П. памылкі.* **5.** *каго (што).* Указаць каму-н. на зробленую памылку. *П. студэнта.* ‖ *незак.* **папраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **папра́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПАПРАГАНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *каго.* Прагнаць, прымусіць пайсці адкуль-н. усіх, многіх. *Дождж папраганяў людзей з поля.* **2.** *што.* Прakласці ў патрэбным напрамку многа чаго-н. *П. барозны плугам.*

**ПАПРАГІНА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Прагнуцца — пра ўсё, многае. *Маснічыны папрагіналіся.*

**ПАПРАГІНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Прагнуць у многіх месцах. *П. дошкі.*

**ПАПРАГНІВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Прагніць у многіх месцах. *Дошкі ад сырасці папрагнівалі.*

**ПАПРАГРЫЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Прагрызці што-н. у многіх месцах. *Мышы папрагрызалі дзіркі.*

**ПАПРАДАВА́ЦЬ**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць; -дава́ны; *зак., каго-што.* Прадаць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. маёмасць.*

**ПАПРАДЗЁЎБВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прадзяўбці што-н. у многіх месцах або ўсё, многае.

**ПАПРАДЗІРА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Прадрацца — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Мяхі папрадзіраліся. П. праз калючы зараснік.*

**ПАПРАДЗІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Прадраць што-н. у многіх месцах, прадраць усё, многае.

**ПАПРАДУ́ХА**, -і, *ДМ* -ду́се, *мн.* -і, -ду́х, *ж.* (уст.). **1.** Жанчына, якая займаецца ручным прадзеннем. *Якая п. пры кудзелі, такое палатно ў белі* (з нар.). **2.** *мн.* Вячоркі, якія наладжвала вясковая моладзь, каб папрасці і павесяліцца; попрадкі. *Хадзіць на папрадухі.*

**ПАПРАКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго, чым.* Выказваць каму-н. дакор, незадавальненне чым-н., абвінавачваць у чым-н., асуджаць за што-н. *П. куском хлеба. П. каго-н. у баязлівасці.* ‖ *аднакр.* **папракну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́.

**ПАПРАКО́ЛВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Пракалоць што-н. у многіх месцах або ўсё, многае. *П. шыны.*

**ПАПРАКО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Пракапаць што-н. у многіх месцах. *П. канаўкі для сцёку вады.*

**ПАПРАКРУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Пракруціць у многіх месцах (дзіркі і пад.).

**ПАПРАМАКА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Прамокнуць — пра ўсё, многае ці ўсіх, многіх. *Світкі папрамакалі наскрозь.*

**ПАПРАМЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Прамыць усё, многае. *Вада папрамывала дамбу ў многіх месцах.*

**ПАПРАПІХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАПРАПІ́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прапхнуць усё, многае.

**ПАПРАПО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прапароць што-н. у многіх месцах, прапароць усё, многае. *П. шыны. П. ногі на калючы дрот.*

**ПАПРАПУСКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Прапусціць усіх, многіх або ўсё, многае, даць прайсці, праехаць усім, многім. *П. пешаходаў.* **2.** *што.* Прасунуць, працягнуць праз што-н. усё, многае. *П. правады праз адтуліны.* **3.** *што.* Зрабіць многа пропускаў. *П. радкі верша.*

**ПАПРАРАЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Прарэзаць што-н. у многіх месцах, прарэзаць усё, многае. *П. абрус. П. праёмы для акон.*

**ПАПРАРЫВА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Прарваць што-н. у многіх месцах, прарваць усё, многае. **2.** Зрабіць пасадкі чаго-н. радзейшымі. *П. буракі.*

**ПАПРАРЫВА́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Лопнуць пасля нагнаення — пра ўсё, многае. *Скулы папрарывалі.*

**ПАПРАРЫВА́ЦЬ**[3], 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; -а́ны; *зак., што.* Прарыць лычом у многіх месцах (пра жывёл).

**ПАПРАСАВА́ЦЬ** *гл.* прасаваць[1].

**ПАПРАСВІДРО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прасвідраваць усё, многае. *П. дзіркі.*

**ПАПРАСІ́ЦЦА** *гл.* прасіцца.

**ПАПРАСІ́ЦЬ** *гл.* прасіць.

**ПАПРАСО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прасунуць, прадзець у што-н. усё, многае.

**ПАПРАСТАРНЕ́ЦЬ** *гл.* прастарнець.

**ПАПРАСТРЭ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прастрэліць што-н. у многіх месцах, прастрэліць усё, многае.

**ПАПРАСТУ́ДЖВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Прастудзіцца — пра ўсіх, многіх.

**ПАПРАСТУ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Прастудзіць усіх, многіх ці ўсё, многае. *П. дзяцей. П. вушы.*

**ПАПРА́СЦІ**, -раду́, -радзе́ш, -радзе́; -радзём, -радзяце́, -раду́ць; -ра́ў, -ра́ла; -радзі́; *зак.* **1.** *што.* Спрасці ўсё, многае. *П. ўвесь лён.* **2.** *чаго* і *без дап.* Прасці некаторы час. *П. дзве гадзіны.*

**ПАПРАСЯКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Прасячы ўсё, многае. *П. палонкі.* **2.** Пралажыць высечкай многа чаго-н. *П. праходы ў лесе.*

**ПАПРАТО́ПТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Пратаптаць усё, многае, у многіх месцах. *П. сцежкі.*

**ПАПРА́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ра́вак, *ж.* **1.** *гл.* паправіцца, паправіць. **2.** Змена, дадатак, якія папраўляюць што-н. *П. да плана. Жыццё ўносіць свае папраўкі.* ‖ *прым.* **папра́вачны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.). *П. каэфіцыент.*

**ПАПРАЎЛЯ́ЦЦА** *гл.* паправіцца.

**ПАПРАЎЛЯ́ЦЬ** *гл.* паправіць.

**ПАПРА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна паправіць, выправіць. *Гэта памылка папраўная.*

**ПАПРА́ЎЧА-ПРАЦО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для выпраўлення працай, у працэсе працы. *Папраўча-працоўная калонія.*

**ПАПРА́ЎЧЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для выпраўлення каго-н. *Папраўчыя меры.*

**ПАПРАЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; *зак.* Правесці некаторы час працуючы. *П. да абеду. Каб ажыццявіць сваю задуму, прыйшлося многа п.*

**ПАПРАЦІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Працерці што-н. у многіх месцах, працерці ўсё, многае. *П. штаны на каленях.* **2.** Выціраючы, зрабіць чыстым усё, многае. *П. шыбы.*

**ПАПРАЧЫ́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Прачытаць усё, многае. *П. гранкі.*

**ПАПРАЧЫШЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Прачысціць усё, многае. *П. каміны ад сажы.*

**ПАПРАША́ЙКА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -шайцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -шаек. **1.** Тое, што і *жабрак.* **2.** Той, хто назойліва выпрошвае, дакучае просьбамі (разм., пагард.).

**ПАПРАША́ЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Быць, паводзіць сябе папрашайкам (-ай). ‖ *наз.* **папраша́йніцтва**, -а, *н.*

**ПАПРО́БАВАЦЬ** *гл.* прабаваць.

**ПАПРО́К**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Дакор, незадавальненне, абвінавачанне, выказаныя каму-н. *Цяжкі п. Сяброўскі п. Кінуць п. каму-н.* (папракнуць).

**ПАПРО́СТУ**, *прысл.* Проста, без цырымоніі. *Скажы ўсё п.*

**ПАПРУ́ГА**, -і, *ДМ* -рузе, *мн.* -і, -руг, *ж.* **1.** Раменны пояс або наогул пояс. *Падперазацца папругай.* **2.** Частка збруі для ўмацавання падсядзёлка на спіне каня. ‖ *памянш.* **папру́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.*

**ПАПРЫБІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Прыбіць што-н. у многіх месцах, прыбіць усё, многае. *П. шыльды.* **2.** *без дап.* Прыгнаць сілай вады, ветру ўсё, многае. *Папрыбівала лодкі да берага.*

**ПАПРЫБІРА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Прыбрацца, прыгожа адзецца — пра ўсіх, многіх.

**ПАПРЫБІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Прыбраць, прыгожа адзець усіх, многіх; упрыгожыць, аздобіць усё, многае. **2.** Навесці парадак, чысціню ўсюды, у многіх месцах. *П. у пакоях.* **3.** *што.* Прыняць адкуль-н. усё, многае. *П. усё з прахода.*

**ПАПРЫБЯГА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Прыбегчы — пра ўсіх, многіх. *Папрыбягалі дзеці са школы.*

**ПАПРЫВО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *зак., што.* Прывесці куды-н. усіх, многіх. *П. дзяцей на ёлку.*

**ПАПРЫВО́ЗІЦЬ**, -во́жу, -во́зіш, -во́зіць; *зак., каго-што.* Прывезці куды-н. усіх, многіх або ўсё, многае. *П. мэблю ў кватэру.*

**ПАПРЫВЫКА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак., да каго-чаго* і *з інф.* Прывыкнуць — пра ўсіх, многіх. *Старыя папрывыкалі да песень моладзі.*

**ПАПРЫВЯ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Прывязаць усіх, многіх або ўсё, многае, прывязаць што-н. у многіх месцах. *П. яблынькі да калкоў.*

**ПАПРЫГАЖЭ́ЦЬ** *гл.* прыгажэць.

**ПАПРЫГАНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Гонячы, даставіць куды-н. усіх, многіх або ўсё, многае. *П. кароў з пашы.*

**ПАПРЫГАРА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е *і* **ПАПРЫГА́РВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *зак.* Прыгарэць у многіх месцах, прыгарэць — пра ўсё, многае. *Бліны папрыгаралі (папрыгарвалі).*

**ПАПРЫГІНА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Прыгнуцца — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАПРЫГІНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Прыгнуць усё, многае. *Людзі папрыгіналі галовы ад гуку сірэны.*

**ПАПРЫКЛЕ́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прыклеіць што-н. у многіх месцах, прыклеіць усё, многае. *П. плакаты.*

**ПАПРЫКО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прыкаціць, даставіць куды-н. усё, многае. *П. бочкі.*

**ПАПРЫКРУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прыкруціць, прымацаваць усё, многае. *П. клямкі да дзвярэй.*

**ПАПРЫЛА́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прыладзіць, прырабіць да чаго-н. усё, многае. *П. замкі да дзвярэй.*

**ПАПРЫЛЕ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прыляпіць што-н. у многіх месцах, прыляпіць усё, многае.

**ПАПРЫЛІПА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; *зак.* Прыліпнуць — пра ўсіх, многіх ці ўсё, многае; прыліпнуць у многіх месцах. *Лісце папрыліпала да тратуару.*

**ПАПРЫЛЯТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Прыляцець — пра ўсіх, многіх ці ўсё, многае. *Птушкі папрыляталі.*

**ПАПРЫМАЦО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прымацаваць што-н. у многіх месцах, прымацаваць усё, многае. *П. табліцы да дошкі.*

**ПАПРЫМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *што.* Прыняць, узяць з рук у рукі, у сваё распараджэнне ўсё ці частку таго, што здаюць, перадаюць, уручаюць. *П. кнігі ад чытачоў. П. тэлеграмы.* **2.** *каго (што).* Залічыць у склад чаго-н. усіх, многіх. *П. выпускнікоў школ на работу.* **3.** *каго (што).* Дапусціць да сябе для агляду, для размовы па якіх-н. справах усіх, многіх. *П. хворых. П. наведвальнікаў.* **4.** *што.* Зняць, забраць адкуль-н. усё, многае. *П. посуд са стала.* **5.** *што* і *без дап.* Прымаць некаторы час. *П. лякарства месяц.*

**ПАПРЫМЯРЗА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; *зак.* Прымерзнуць — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае; прымерзнуць у многіх месцах. *Папрымярзалі вёдры да лаўкі.*

**ПАПРЫНО́СІЦЬ**, -о́шу, -о́сіш, -о́сіць; *зак., каго-што.* Прынесці ўсё, многае ці ўсіх, многіх. *П. кашы грыбоў.*

**ПАПРЫПАЎЗА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Прыпаўзці — пра ўсіх, многіх.

**ПАПРЫПІ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Прыпісаць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. дапрызыўнікаў да прызыўных пунктаў.*

**ПАПРЫРАЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАПРЫРЭ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Прырэзаць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАПРЫСО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прысунуць да каго-, чаго-н. усё, многае. *П. крэслы да стала.*

**ПАПРЫСТАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак.* **1.** *што.* Прыставіць, прысланіць да каго-, чаго-н. усё, многае. *П. жэрдзе да страхі.* **2.** *каго (што).* Прызначыць быць

дзе-н., каля каго-н. — пра ўсіх, многіх. *П. вартавых да затрыманых.*

**ПАПРЫСТРО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прыстрачыць што-н. у многіх месцах, прыстрачыць усё, многае. *П. кішэні.*

**ПАПРЫСЫЛА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Прыслаць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. маладых спецыялістаў у гаспадаркі раёна.*

**ПАПРЫСЫХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Прысохнуць да чаго-н. — пра ўсё, многае, прысохнуць у многіх месцах. *Гразь папрысыхала да калёс.*

**ПАПРЫХО́ДЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -дзіць; -дзім, -дзіце, -дзяць; *зак.* Прыйсці, прыбыць куды-н. — пра ўсіх, многіх ці ўсё, многае. *Цягнікі ўсе папрыходзілі ў тэрмін.*

**ПАПРЫЦІХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Прыціхнуць — пра ўсіх, многіх.

**ПАПРЫЧЭ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны *і* **ПАПРЫЧАПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Прычапіць усё, многае. *П. шторы да карнізаў.*

**ПАПРЫШПІ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прышпіліць што-н. у многіх месцах, прышпіліць усё, многае.

**ПАПРЫШЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Прышыць усё, многае, прышыць што-н. у многіх месцах. *П. гузікі.*

**ПАПРЫЯЗДЖА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Прыехаць, з'ехацца куды-н. — пра ўсіх, многіх. *Сваякі папрыязджалі ў госці.*

**ПАПРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які папрэў, сапсаваўся ад сырасці і цяпла; які запаліўся ад перагравання, поту (пра скуру). *Папрэлыя месцы на целе.*

**ПАПРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *зак.* Сапрэць, сапсавацца ад сырасці і цяпла або стаць запаленым ад перагравання і поту (пра скуру). *Сена папрэла. Пад пахамі папрэла* (безас.).

**ПАПСАВА́ЦЦА** *гл.* псавацца.

**ПАПСАВА́ЦЬ** *гл.* псаваць.

**ПА́ПСКІ** *гл.* папа.

**ПАПУА́СЫ**, -аў, *адз.* -пуа́с, -а, *м.* Карэннае насельніцтва Новай Гвінеі і некаторых астравоў Меланезіі. ‖ *ж.* **папуа́ска**, -і, *ДМ* -а́сцы, *мн.* -і, -сак. ‖ *прым.* **папуа́скі**, -ая, -ае.

**ПАПУГА́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Птушка трапічных краін з яркім стракатым апярэннем, якая здольна пераймаць розныя гукі і словы. *Не паўтарай мае словы, як п.* **2.** *перан.* Пра чалавека, які паўтарае чужыя словы, не маючы свайго погляду (разм., неадабр.). ‖ *прым.* **папуга́еў**, -га́ева, -га́евы (да 1 знач.) *і* **папуга́йскі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПАПУ́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -іцца; *зак.* Спудзіцца — пра ўсіх, многіх. *Коні папудзіліся.*

**ПАПУ́ДРЫЦЦА** *гл.* пудрыцца.

**ПАПУ́ДРЫЦЬ** *гл.* пудрыць.

**ПАПУЖА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Спужацца — пра ўсіх, многіх. *Дзеці папужаліся.*

**ПАПУЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго (што).* **1.** Злёгку напужаць. **2.** Спужаць усіх, многіх.

**ПАПУЛІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Грамадскі рух (з канца 19 ст.), які апелюе непасрэдна да шырокіх мас і сцвярджае, што яны самі, маючы моцнага лідара, здольны вырашаць свае сацыяльныя праблемы. ‖ *прым.* **папулі́сцкі**, -ая, -ае.

**ПАПУЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік папулізму. ‖ *прым.* **папулі́сцкі**, -ая, -ае.

**ПАПУЛЯ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Агульнадаступны, зразумелы па прастаце, яснасці выкладу. *Папулярная літаратура. Папулярна* (прысл.) *усё растлумачыць.* **2.** Які шырока вядомы; прызнаны грамадскасцю. *Папулярная песня.* ‖ *наз.* **папуля́рнасць**, -і, *ж.*

**ПАПУЛЯРЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -заваны; *зак.* і *незак., каго-што* (кніжн.). **1.** Зрабіць (рабіць) зразумелым, даступным, папулярным (у 1 знач.). *П. навуковыя веды.* **2.** Зрабіць (рабіць) шырока вядомым, папулярным (у 2 знач.); распаўсюдзіць (распаўсюджваць). *П. новы метад.* ‖ *наз.* **папулярыза́цыя**, -і, *ж.*

**ПАПУЛЯРЫЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца папулярызацыяй чаго-н. ‖ *прым.* **папулярыза́тарскі**, -ая, -ае.

**ПАПУЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). Сукупнасць асобін аднаго віду, якая доўга існуе дзе-н. *П. баброў.*

**ПАПУРЫ́**, *нескл., н.* Музычная п'еса, якая складаецца з урыўкаў розных агульнавядомых мелодый.

**ПАПУСКА́ЦЬ**[1] *гл.* папусціць.

**ПАПУСКА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *каго.* Пусціць куды-н. усіх, многіх. *П. коней у авёс.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Даць парасткі. *Таполя папускала парасткі.*

**ПАПУСЦІ́ЦЦА**, -ушчу́ся, -у́сцішся, -у́сціцца; *зак.* **1.** Уступіць у чым-н., адступіцца, адмовіцца ад чаго-н. *Тут я не папушчуся: будзе, як рашылі раней.* **2.** Даць сябе ў крыўду. *Ён не той чалавек, каб п.* **3.** Дапусціць, дазволіць што-н. (разм.). *Як ты магла п., што яны табе на галаву селі?* ‖ *незак.* **папуска́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАПУСЦІ́ЦЬ**, -ушчу́, -у́сціш, -у́сціць; -у́шчаны; *зак.* **1.** *што* і *у чым.* Уступіць, адмовіцца ад чаго-н. *Я свайго не папушчу.* **2.** *што.* Адпусціць, аслабіць, зрабіўшы даўжэйшым. *П. канцы вяроўкі.* **3.** *чым.* Кінуць з размаху (разм.). *П. каменем.* ‖ *незак.* **папуска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАПУ́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -не; -нем, -неце, -нуць; папу́х, -хла; *зак.* Апухнуць — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Ногі папухлі.*

**ПАПЫ́РСКАЦЦА** *гл.* пырскацца.

**ПАПЫ́РСКАЦЬ** *гл.* пырскаць.

**ПАПЫТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** *каго* або *у каго.* Задаць каму-н. пытанне, каб даведацца пра што-н. *Папытайся ў яе пра здароўе маці.* **2.** *чаго* або *у каго.* Папрасіць дазволу на што-н., звярнуцца з якой-н. просьбай. *Папытаўся ў бацькі дазволу пайсці на каток.*

**ПАПЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго* або *у каго.* Звярнуцца да каго-н. з пытаннем, каб даведацца пра што-н. *Папытай, калі яны ад'язджаюць.*

**ПАПЫ́ХКВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Выпускаць час ад часу дым, пару. *П. люлькай. На станцыі папыхкваў паравоз.*

**ПАПЯЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *незак.* **1.** Ператварацца ў попел (разм.). *Папялела хата ў агні.* **2.** Набываць колер попелу. *Познім летам папялеюць зоркі.*

**ПАПЯЛІСТА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. попельны, з попельным адценнем, напр.: *папяліста-блакітны, папяліста-жамчужны, папяліста-каштанавы, папяліста-русы, папяліста-сівы, папяліста-шэры.*

**ПАПЯЛІ́СТЫ**, -ая, -ае. Які мае колер попелу. *Папялістае неба.*

**ПАПЯЛІ́ШЧА**, -а, *мн.* -ы, -лі́шч *і* -лі́шчаў, *н.* Тое, што і *пажарышча.*

**ПАПЯЛЬНІ́К**, -пельніка́, -пельнікі́, -пельніко́ў, *м.* (спец.). Ніжняя частка топкі, куды падае попел.

**ПАПЯРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* папера. **2.** *перан.* Канцылярска-бюракратычны. *Папяровая цяганіна.*

**ПАПЯРО́К**, *прысл.* і *прыназ. з Р.* У напрамку шырыні чаго-н. *Разрэзаць п. П. канавы ляжыць кладка.*

**ПАПЯРО́СА**, -ы, *мн.* -ы, -ро́с, *ж.* Папяровая трубка з тытунём для курэння (звычайна праз мундштук). ‖ *памянш.* **папяро́ска**, -і, *ДМ* -ро́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* ‖ *прым.* **папяро́сны**, -ая, -ае. *Папяросная папера* (вельмі тонкая).

**ПАПЯРО́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Папярочны брус.

**ПАПЯРО́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Памер у шырыню, дыяметр. *П. бервяна 40 см.*

**ПАПЯРО́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які праходзіць, размяшчаецца ўпоперак чаго-н. *П. зрэз.*

**ПАПЯРХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -нёшся, -нёцца; -нёмся, -перхняцёся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* Закашляцца ад пападання чаго-н. у дыхальнае горла. *П. дымам.*

**ПАПЯРЭ́ДЖАННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* папярэдзіць. **2.** Заўвага, якая папярэджвае пра што-н.; перасцярога. *Улічыць п. ўрача. Строгая вымова з папярэджаннем* (гэта значыць накладзена дысцыплінарнае спагнанне).

**ПАПЯРЭ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Загадзя апавясціць, паведаміць. *П. аб небяспецы.* **2.** *што.* Загадзя прынятымі мерамі перашкодзіць ажыццяўленню чаго-н. *П. злачынства.* ‖ *незак.* **папярэ́джваць**, -аю, -аеш,

-ае *і* **папераджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (разм.). ‖ *наз.* **папярэ́джанне**, -я, *н.*

**ПАПЯРЭ́ДНЕ**, *прысл.* Перад чым-н., раней за што-н. *Трэба ўсё п. разведаць.*

**ПАПЯРЭ́ДНІ**, -яя, -яе. **1.** Які быў раней за што-н., знаходзіўся непасрэдна перад чым-н. *На папярэдняй старонцы.* **2.** Які папярэднічае чаму-н., які бывае перад чым-н. *Папярэдняя падрыхтоўка. Папярэдняе следства.* **3.** Незакончаны, такі, пасля якога яшчэ будзе што-н. *Папярэднія вынікі.*

**ПАПЯРЭ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто папярэднічаў каму-н. у чым-н., сваёй дзейнасцю падрыхтаваў што-н. *Духоўная спадчына папярэднікаў.* ‖ *ж.* **папярэ́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАПЯРЭ́ДНІЧАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* Адбываецца, здараецца раней за што-н., перад чым-н. *Як правіла, навальніцы папярэднічае вецер.*

**ПАПЯЧЫ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Асоба, якая афіцыйна назначаецца для папячыцельства (у 1 знач.). *П. непаўналетняга.* **2.** У дарэвалюцыйны час: званне кіраўніка некаторых устаноў. *П. вучэбнай акругі.* ‖ *ж.* **папячы́цельніца**, *мн.* -ы, -ніц (да 1 знач.). ‖ *прым.* **папячы́цельскі**, -ая, -ае.

**ПАПЯЧЫ́ЦЕЛЬСТВА**, -а, *н.* **1.** Меры па апецы над кім-н. *Устанавіць п. над сіратой.* **2.** У дарэвалюцыйны час: установа для апекі над кім-н.

**ПА́РА**[1], -ы, *мн.* -ы, пар, *ж.* **1.** Два аднародныя прадметы, якія выкарыстоўваюцца разам і складаюць цэлае. *П. рукавіц.* **2.** Дзве штукі чаго-н. (разм.). *П. куранят.* **3.** Запрэжка з двух коней. *Прыехаць на пары.* **4.** Дзве асобы, якія знаходзяцца, дзейнічаюць разам, аб'яднаныя чым-н. агульным. *Хадзіць парамі. Пары танцораў. Ён табе не п.* (не падыходзіць). **5.** Невялікая колькасць чаго-н.; некалькі (разм.). *Папрасіць на пару слоў* (пагаварыць нядоўга). *На пару хвілін.* ◊ **На пару** (разм.) — разам, удваіх з кім-н. ‖ *памянш.* **па́рачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ПА́РА**[2], -ы, *ж.* **1.** Рэчыва ў газападобным стане, якое ўтвараецца з вадкасці пры яе награванні, выпарэнні. *З чыгуна ішла п. Параход стаіць пад парай* (гатовы ў любы момант адправіцца). **2.** Моцна нагрэтае вільготнае паветра. *П. касцей не ломіць* (прыказка). ‖ *прым.* **паравы́**, -а́я, -о́е. *П. кацёл* (для атрымання пары). *Паравая машына* (якая прыводзіцца ў рух парай). *Паравое ацяпленне* (якое выкарыстоўвае цяпло пары). *Паравыя катлеты* (прыгатаваныя на пары).

**ПАРА́**, -ы́, *мн.* по́ры, пор *і* по́раў, *ж.* **1.** Час, перыяд, тэрмін. *Летняя п. Без пары* (дачасна). *Да гэтай пары* (да гэтага часу). *Да пары да часу* (пакуль што). *З той пары* (з таго часу, моманту). *Не ў пару* (не ў час, недарэчы). *У пару* (у час, своечасова). **2.** *у знач. вык.* Настаў час для чаго-н. *П. дадому.*

**ПАРА...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач.: які знаходзіцца побач, адхіляецца ад чаго-н., парушае што-н., мае адносіны да па́ры[2], паравы, напр.: *параметрычны, парапсіхалогія, парагенератар, параадводны, параразмеркавальнік.*

**ПАРАБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., каго-што.* Абрабаваць усіх, многіх ці ўсё, многае.

**ПА́РАБАК**, -бка, *мн.* парабкі́, -бо́ў *і* па́рабкі, -аў, *м.* Наёмны сельскагаспадарчы рабочы ў памешчыцкай або кулацкай гаспадарцы. ‖ *ж.* **парабча́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **парабко́ўскі**, -ая, -ае.

**ПАРА́БАЛА**, -ы, *мн.* -ы, -бал, *ж.* У матэматыцы: лінія перасячэння круглага конуса плоскасцю, паралельнай якой-н. датычнай плоскасці гэтага конуса. ‖ *прым.* **парабалі́чны**, -ая, -ае.

**ПАРАБЕ́ЛУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Від аўтаматычнага пісталета.

**ПАРАБІ́ЦЬ**, -раблю́, -ро́біш, -ро́біць; -ро́блены; *зак., што.* **1.** Зрабіць усё, многае. *П. усю работу.* **2.** Папрацаваць некаторы час. *П. на ўборцы бульбы.* ◊ **Нічога не паробіш** або **што (ж) паробіш** (разм.) — пра неабходнасць згадзіцца з тым, што ёсць.

**ПАРАБКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; *незак.* (разм.). Працаваць, быць парабкам.

**ПАРАБКО́ЎСКІ** *гл.* парабак.

**ПАРАБКО́ЎСТВА**, -а, *н.* Занятак парабка.

**ПАРАБЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* (разм.). Праводзіць час, робячы што-н., займаючыся чым-н. *Што ты цяпер парабляеш?*

**ПАРАБЧА́НКА** *гл.* парабак.

**ПАРАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Паравы кацёл або рухавік (спец.). **2.** Паравоз або цягнік з паравозам (разм., уст.).

**ПАРАВО́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лакаматыў з паравым рухавіком. ‖ *прым.* **параво́зны**, -ая, -ае.

**ПАРАВЫ́** *гл.* па́ра[2].

**ПАРА́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Падраздзяленне тэксту ўнутры раздзела, якое абазначаецца знакам § (і парадкавым нумарам), а таксама сам гэты знак.

**ПАРА́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урачысты агляд (войск, спартсменаў). *Вайсковы п. Фізкультурны п.*

**ПАРА́ДА**, -ы, *ДМ* -ра́дзе, *мн.* -ы, -ра́д, *ж.* **1.** Прапанова як дзейнічаць, рада. *Даць добрую параду каму-н. Паслухацца парады таварыша.* **2.** Сумеснае абмеркаванне чаго-н., кароткая нарада. *Сабрацца для парады.*

**ПАРА́ДАВАЦЦА** *гл.* радавацца.

**ПАРА́ДАВАЦЬ** *гл.* радаваць.

**ПАРА́ДАК**, -дку, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* **1.** Наладжаная сістэма размяшчэння чаго-н., належны стан чаго-н. *У пакоі поўны п. Навесці п. дзе-н. Усё ў парадку* (усё так, як належыць). *Для парадку* (для падтрымання парадку, для захавання прынятых правіл, фармальнасцей). *Сваім парадкам* (як заўсёды, як звычайна). **2.** Паслядоўны ход чаго-н. *Расказаць усё па парадку. П. дня* (пералік пытанняў, якія неабходна абмеркаваць на пасяджэнні). *У рабочым парадку* (у ходзе работы). **3.** Спосаб, метад, рэжым чаго-н. *П. аплаты працы. П. галасавання. Завесці новыя парадкі.* **4.** Вайсковае пастраенне. *Баявы п. Рухацца паходным парадкам.* **5.** Разнавіднасць, тып чаго-н. *Пытанні агульнага парадку.* **6.** У матэматыцы: лікавая характарыстыка той або іншай велічыні. *Крывая другога парадку.* ○ **Парадак слоў** — у граматыцы: размяшчэнне членаў сказа адпаведна сінтаксічным нормам або камунікатыўным заданням маўлення. ‖ *памянш.* **пара́дачак**, -чку, *м.* (да 1 знач.).

**ПАРАДАКСА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** *гл.* парадокс. **2.** Неверагодны, незвычайны. *П. адказ. П. выпадак.* ‖ *наз.* **парадакса́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАРА́Д-АЛЕ́**, пара́да-але́, *мн.* пара́дыале́, пара́даў-але́, *м.* У цырку: выхад на арэну ўсіх удзельнікаў перад пачаткам праграмы.

**ПАРАДЖА́ЦЬ** *гл.* парадзіць.

**ПАРАДЖЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (кніжн.). Тое, што пароджана кім-, чым-н.; вынік чаго-н. *Культура — п. культурных патрэб народа.*

**ПАРАДЗЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які парадзеў, стаў радзейшым. *Парадзелыя валасы.*

**ПАРАДЗЕ́ЦЬ** *гл.* радзець.

**ПАРАДЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак., каго-што.* Пада́ць (падаваць) у смешным, карыкатурным выглядзе. *П. мову персанажаў.*

**ПАРАДЗІ́ХА**, -і, *ДМ* -дзі́се, *мн.* -і, -дзі́х, *ж.* Жанчына, якая раджае або толькі што нарадзіла дзіця.

**ПАРА́ДЗІЦЦА** *гл.* ра́дзіцца.

**ПАРА́ДЗІЦЬ** *гл.* ра́дзіць.

**ПАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны; *зак., што.* Стаць прычынай узнікнення, з'яўлення чаго-н. *Пачутае пра яго парадзіла ўва мне непрыемнае пачуццё да гэтага чалавека.* ‖ *незак.* **параджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАРА́ДКАВАЦЦА**, -куюся, -куешся, -куецца; -куйся; *незак.* (разм.). Прыводзіць што-н. у парадак, у належны стан. *Буду п. ў хаце.*

**ПАРА́ДКАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; *зак., што* і *без дап.* Прыводзіць у парадак што-н.; наводзіць парадак дзе-н. *П. рэчы.* ‖ *зак.* **спара́дкаваць**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны.

**ПАРА́ДКАВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які паказвае месца ў якім-н. радзе і адказвае на пытанні: які, каторы па парадку. *П. нумар. Трэці год.* **2.** У граматыцы: **парадкавы лічэбнік** — слова, якое паказвае на парадак пры лічэнні і абазначае прымету як адносіны да колькасці, ліку (напр.: *першы, дзясяты, соты, тысячны*).

**ПАРА́ДКАМ**, *прысл.* (разм.). **1.** У значнай ступені, даволі моцна, многа. *Ён ужо п. пастарэў.* **2.** Як мае быць, як след. *Ніхто*

*п. не ведаў, куды яны паехалі.* **3.** Па парадку. *П. абыходзіць усе двары.*

**ПАРАДКО́ВЫ**, -ая, -ае. Які робіцца, выконваецца па радках, за кожны радок. *П. падлік. Парадковая аплата.*

**ПАРА́ДНАСЦЬ**, -і, *ж.* Урачыстасць, пышнасць, святочнасць. *П. цырымоніі.*

**ПАРА́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *дарадчык.* ‖ *ж.* **пара́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАРАДНІ́ЦЦА** *гл.* радніцца.

**ПАРА́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прызначаны для парада, для ўрачыстых выпадкаў; святочны. *Парадная форма. П. мундзір.* **2.** Пра ўваход: пярэдні, галоўны. *Парадныя дзверы. П. ход.*

**ПАРАДО́КС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). **1.** Думка, меркаванне, якое разыходзіцца з агульнапрынятымі поглядамі і на першы погляд нібы супярэчыць разумнаму сэнсу. *Гаварыць парадоксамі.* **2.** З'ява, якая здаецца неверагоднай і нечаканай. ‖ *прым.* **парадакса́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *П. вывад.*

**ПАРАДЧЭ́ЦЬ** *гл.* радчэць.

**ПАРАДЫ́ГМА**, -ы, *мн.* -ы, -ды́гм *і* -ды́гмаў, *ж.* У граматыцы: 1) сістэма форм зменнага слова (напр., скланенне наз.) або канструкцыі; 2) любы клас моўных адзінак, аб'яднаных пэўнай агульнай прыкметай. *Словаўтваральная п.* ‖ *прым.* **парадыгматы́чны**, -ая, -ае.

**ПАРАДЫ́ЙНЫ** *гл.* пародыя.

**ПАРАДЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтар пародый.

**ПАРАДЫ́ЧНЫ** *гл.* пародыя.

**ПАРАЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Здольны паражацца чым-н. *Паражальная тэрыторыя.*

**ПАРАЖА́ЦЬ** *гл.* паразіць.

**ПАРАЖНЯ́К**, -у́, *м.* Транспарт, які ідзе без грузу. ‖ *прым.* **паражняко́вы**, -ая, -ае.

**ПАРАЖНЯКО́М**, *прысл.* (разм.). Без грузу, без пасажыраў. *Машына пайшла п.*

**ПАРАЖЭ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Прыхільнік паражэнства.

**ПАРАЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* паразіць. **2.** Няўдача ў вайне, барацьбе, спаборніцтве. *Нанесці п. ворагу. Пацярпець п. ў шахматным турніры.*

**ПАРАЖЭ́НСТВА**, -а, *н.* **1.** У час Першай сусветнай вайны: палітычны настрой у некаторых грамадскіх колах, якія жадалі паражэння свайго ўрада ў вайне. **2.** Пазіцыя, якая адлюстроўвае няверʼе ў магчымасць ажыццяўлення чаго-н., у перамогу чаго-н. (неадабр.). ‖ *прым.* **паражэ́нчы**, -ая, -ае.

**ПАРАЗБІВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Разбіцца — пра ўсё, многае ці ўсіх, многіх. *Талеркі паразбіваліся.*

**ПАРАЗБІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Разбіць усё, многае. *П. посуд. П. пракосы.*

**ПАРАЗБІНТО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Разбінтаваць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. раненых.*

**ПАРАЗБІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Разабраць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. тавары.*

**ПАРАЗБЛЫ́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разблытаць усё, многае. *П. ніткі.*

**ПАРАЗБУ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго (што).* Разбудзіць усіх, многіх.

**ПАРАЗБУРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАРАЗБУ́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разбурыць усё, многае.

**ПАРАЗБУХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Разбухнуць — пра ўсё, многае. *Зерне паразбухала ад вільгаці.*

**ПАРАЗБЭ́РСВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Разбэрсацца — пра ўсё, многае. *Шнуркі паразбэрсваліся.*

**ПАРАЗБЭ́РСВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разбэрсаць усё, многае.

**ПАРАЗБЭ́ШЧВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Разбэсціцца — пра ўсіх, многіх.

**ПАРАЗБЭ́ШЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго (што).* Разбэсціць усіх, многіх. *П. дзяцей.*

**ПАРАЗБЯГА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Разбегчыся — пра ўсіх, многіх. *Дзеці паразбягаліся хто куды.*

**ПАРАЗВА́ЛЬВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Разваліцца — пра ўсё, многае ці пра ўсіх, многіх. *Абутак паразвальваўся зусім. Паразвальваліся ў крэслах нібы тыя паны.*

**ПАРАЗВА́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разваліць усё, многае. *П. дровы.*

**ПАРАЗВА́РВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Разварыцца — пра ўсё, многае. *Бульба паразварвалася.*

**ПАРАЗВА́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разварыць усё, многае.

**ПАРАЗВАРО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Развярнуць усё, многае. *П. сцены.*

**ПАРАЗВЕ́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Развеяць усё, многае. *Вецер паразвейваў лісце.*

**ПАРАЗВЕ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Развесіць усё, многае. *П. бялізну.*

**ПАРАЗВІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Развіць усё, многае. *П. вяроўкі.*

**ПАРАЗВО́ЗІЦЬ**, -о́жу, -о́зіш, -о́зіць; *зак., каго-што.* Развезці ўсіх, многіх ці ўсё, многае. *П. гасцей.*

**ПАРАЗВО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Разараць усё, многае. *П. бульбу.*

**ПАРАЗВЯ́ЗВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Развязацца — пра ўсё, многае ці пра ўсіх, многіх. *Мяшкі паразвязваліся.*

**ПАРАЗВЯ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Развязаць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. вузлы.*

**ПАРАЗГА́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разгадаць усё, многае. *П. загадкі.*

**ПАРАЗГАНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., каго-што.* Разагнаць усё, многае або ўсіх, многіх. *Сабака паразганяў курэй.*

**ПАРАЗГАРО́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разгарадзіць усё, многае.

**ПАРАЗГІНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Разагнуць усё, многае. *П. цвікі. П. спіны.*

**ПАРАЗГЛА́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разгладзіць усё, многае. *П. швы.*

**ПАРАЗГО́РТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разгарнуць усё, многае. *П. кнігі.*

**ПАРАЗГРАБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Разгрэбці ўсё, многае.

**ПАРАЗГРУЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* Разгрузіць усё, многае. *П. вагоны.*

**ПАРАЗДАВА́ЦЬ**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць; -дава́ны; *зак., каго-што.* Раздаць усіх, многіх або ўсё, многае ўсім, многім (*гл.* раздаць[1]). *П. падарункі дзецям.*

**ПАРАЗДЗІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Разадраць усё, многае.

**ПАРАЗДЗЯВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Раздзецца — пра ўсіх, многіх.

**ПАРАЗДЗЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* Раздзець усіх, многіх.

**ПАРАЗДУ́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго (што).* Раздурыць усіх, многіх. *П. хлопцаў.*

**ПАРАЗДУ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Раздушыць усё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАРАЗІ́Т**, -а, *М* -зіце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Арганізм (расліна або жывёліна), які жыве на паверхні або ўсярэдзіне другога арганізма і корміцца за яго кошт. **2.** *перан.* Той, хто жыве з чужой працы, дармаед (пагард.). ‖ *ж.* **паразі́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 2 знач.). ‖ *прым.* **паразі́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **паразі́цкі**, -ая, -ае (да 2 знач.; разм.).

**ПАРАЗІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак.* (кніжн.). Жыць паразітам, весці паразітарнае існаванне.

**ПАРАЗІТА́РНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** Які распаўсюджваецца паразітамі (у 1 знач.). *Паразітарныя хваробы.* **2.** Уласцівы паразітам. *Весці п. лад жыцця.* ‖ *наз.* **паразіта́рнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПАРАЗІТЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Суіснаванне двух арганізмаў, пры якім адзін арганізм (паразіт) корміцца за кошт другога. **2.** *перан.* Жыццё з чужой працы, дармаедства. ‖ *прым.* **паразіты́чны**, -ая, -ае.

**ПАРАЗІ́ЦЬ**, -ражу́, -разі́ш, -разі́ць; -разі́м, -разіце́, -разя́ць; -ражо́ны; *зак.* **1.** *каго-што і чым.* Забіць, нанесці ўдар якой-н. зброяй; папаўшы ў што-н., знішчыць, разбурыць (кніжн.). *П. мішэнь.* **2.** *каго-што.* Разбіць, перамагчы (высок.). *П. ворага.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каго-што.* Выклікаць пашкоджанне, змяненне ў тканцы, органе (пра хваробу). *Параліч паразіў вочныя нер-*

*вы.* ‖ *незак.* **паража́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **паражэ́нне**, -я, *н.*

**ПАРАЗЛІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Разліць усё, многае. *П. халадзец у талерکі.*

**ПАРАЗЛО́МВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Разламацца — пра ўсё, многае.

**ПАРАЗЛО́МВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Разламаць усё, многае.

**ПАРАЗЛЯТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Разляцецца — пра ўсё, многае ці пра ўсіх, многіх. *Шпакі паразляталіся.*

**ПАРАЗМА́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Размазаць усё, многае.

**ПАРАЗМАКА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак., што.* Размокнуць — пра ўсё, многае або пра ўсіх, многіх.

**ПАРАЗМАЛЁЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Размаляваць усё, многае.

**ПАРАЗМО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Размачыць усё, многае. *П. сухары.*

**ПАРАЗМЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Размыць усё, многае. *Паводка паразмывала дарогі.*

**ПАРАЗМЯКА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Размякнуць — пра ўсё, многае або пра ўсіх, многіх.

**ПАРАЗМЯТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Размесці ўсё, многае або ўсіх, многіх. *П. снег.*

**ПАРАЗНО́СІЦЬ**, -о́шу, -о́сіш, -о́сіць; *зак., каго-што.* Разнесці ўсё, многае ці ўсіх, многіх. *Вецер паразносіў салому.*

**ПАРАЗРАЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Разрэзаць усё, многае.

**ПАРАЗРАСТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Разрасціся — пра ўсё, многае. *Дрэвы паразрасталіся.*

**ПАРАЗРАЎНО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Разраўнаваць усё, многае. *П. зямлю.*

**ПАРАЗРЫВА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Разарваць усё, многае ці ўсіх, многіх.

**ПАРАЗРЫВА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Разрыць усё, многае. *П. капцы з бульбай.*

**ПАРАЗУВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Разуцца — пра ўсіх, многіх.

**ПАРАЗУВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Разуць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАРАЗУМЕ́ННЕ**, -я, *н.* Згода, аднадушнасць, разуменне адзін аднаго. *Прыйсці да паразумення.*

**ПАРАЗУМЕ́ЦЦА**, -е́юся, -е́ешся, -е́ецца; *зак.* Прыйсці да згоды, дамовіцца. *Ці не час нам п.*

**ПАРАЗУМНЕ́ЦЬ** *гл.* разумнець.

**ПАРАЗЫХО́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -дзіцца; -дзімся, -дзіцеся, -дзяцца; *зак.* Разысціся — пра ўсіх, многіх ці ўсё, многае. *Усе паразыходзіліся.*

**ПАРАЗ'ЯДА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак., што.* Раз'есці ўсё, многае. *Ванна параз'ядала пальцы.*

**ПАРАЗ'ЯЗДЖА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Раз'ехацца — пра ўсіх, многіх. *Госці параз'язджаліся.*

**ПАРАЗЯЎЛЯ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -я́е; -я́ем, -я́еце, -я́юць; *зак., што.* Разявіць (рот, пашчу) — пра ўсіх, многіх. *П. раты.*

**ПАРА́ІЦЦА** *гл.* ра́іцца.

**ПАРА́ІЦЬ** *гл.* ра́іць.

**ПАРАКО́ННЫ**, -ая, -ае. Запрэжаны парай коней. *Параконная запрэжка.*

**ПАРАКСІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Моцны прыступ хваробы (пачуцця), які адбываецца перыядычна. *П. кашлю. П. адчаю.* ‖ *прым.* **параксізма́льны**, -ая, -ае.

**ПАРАЛЕЛАГРА́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У матэматыцы: чатырохвугольнік, процілеглыя бакі якога роўныя і паралельныя.

**ПАРАЛЕЛЕПІ́ПЕД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* У матэматыцы: прызма, асновай якой з'яўляецца паралелаграм.

**ПАРАЛЕЛІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Роўная на ўсім працягу адлегласць адна ад адной ліній і плоскасцей. *П. ліній.* **2.** Нязменныя суадносіны дзвюх з'яў, двух дзеянняў, якія паўтараюцца, дубліруюцца. *П. у рабоце.*

**ПАРАЛЕ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** У матэматыцы: прамая, якая не перасякае другую прамую, што ляжыць з ёй у адной плоскасці. *Правесці п.* **2.** *перан.* Параўнанне, а таксама з'ява, якая можа параўноўвацца з іншай падобнай з'явай (кніжн.). *Правесці п. паміж чым-н. Канкрэтнасць гістарычных паралелей.* **3.** Уяўная лінія перасячэння зямной паверхні плоскасцю, паралельнай плоскасці экватара. *Паралелі і мерыдыяны на геаграфічнай карце.*

**ПАРАЛЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца паралеллю (у 1 знач.). *Паралельныя лініі.* **2.** *перан.* Такі ж, падобны, які адбываецца адначасова і побач з чым-н. *Паралельныя з'явы.* ‖ *наз.* **паралє́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАРАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Давесці (даводзіць) да стану паралічу. *У яго паралізавала руку.* **2.** *перан.* Пазбавіць (пазбаўляць) здольнасці або магчымасці дзейнічаць. *Страх паралізаваў сілы. Разбурэнні паралізавалі дзейнасць чыгункі.*

**ПАРАЛІ́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Хворы на параліч. ‖ *ж.* **паралі́тычка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **паралі́тычны**, -ая, -ае.

**ПАРА́ЛІЧ**, -у, *м.* Хвароба, якая пашкоджвае нервовую сістэму і пры якой асобныя органы або частка цела трацяць здольнасць да адвольных рухаў. *П. ног. Разбіты паралічам.* ‖ *прым.* **паралі́чны**, -ая, -ае.

**ПАРАЛО́Н**, -у, *м.* Лёгкі эластычны сінтэтычны матэрыял. *Паліто на паралоне.* ‖ *прым.* **парало́навы**, -ая, -ае.

**ПАРА́ЛЮШ**, -у, *м.* (разм.). Тое, што і *параліч.* ‖ *прым.* **пара́люшны**, -ая, -ае.

**ПАРА́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Велічыня, што характарызуе якую-н. асноўную ўласцівасць устройства, сістэмы, машыны або з'явы, працэсу. *Параметры лазернай устаноўкі.*

**ПАРАНАІ́ЧНЫ** *гл.* параноя.

**ПАРАНДЖА́**, -ы́, *ж.* Верхняе жаночае адзенне ў мусульманскіх народаў у выглядзе шырокага халата з густой валасяной сеткай, што закрывае твар. Абавязковае яго нашэнне адпавядае нормам ісламу.

**ПАРА́НЕНЫ**, -ая, -ае. Які мае рану. *Параненыя байцы. Даглядаць параненых* (наз.).

**ПАРА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што.* **1.** Нанесці рану каму-н., раніць каго-, што-н. *Яго параніла* (безас.) *асколкам снарада. П. руку. П. душу каму-н.* (перан.). **2.** Раніць усіх, многіх або нанесці раны каму-н. у многіх месцах. *П. усё цела.*

**ПА́РАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.). **1.** Запраўленая паранай бульбай ці мукой і завараная кіпнем сечка або мякіна на корм жывёле. *Зрабіць паранкі карове.* **2.** Параная бульба ў лушпінах.

**ПА́РАННЕ** *гл.* парыць.

**ПАРАНО́ІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, хворы на параною.

**ПАРАНО́Я**, -і, *ж.* Хранічнае душэўнае захворванне, якое характарызуецца ўстойлівым трызненнем. ‖ *прым.* **паранаі́чны**, -ая, -ае.

**ПА́РАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прыгатаваны парай. *Параная бульба.* **2.** Гатаваны (пра малако). *Паранае малако.*

**ПАРАПЕ́Т**, -а, *М* -пе́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невысокая агароджа ўздоўж моста, набярэжнай вуліцы. ‖ *прым.* **парапе́тны**, -ая, -ае.

**ПАРАПСІХАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Вывучэнне гіпатэтычнай магчымасці непасрэдна перадаваць на адлегласць інфармацыю аб нервова-псіхалагічным стане аднаго чалавека другому. ‖ *прым.* **парапсіхалагі́чны**, -ая, -ае.

**ПАРАПСІХО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца парапсіхалогіяй.

**ПАРАСЁ** *гл.* парася.

**ПАРАСІЛАВЫ́**, -а́я, -о́е (спец.). Які мае адносіны да ператварэння цеплавой энергіі пары[2] ў механічную. *Парасілавая ўстаноўка* (паравы кацёл і рухавік).

**ПАРАСІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ро́сіцца; *незак.* Пра свінню, вожыка, барсука: нараджаць, прыводзіць прыплод. ‖ *зак.* **апарасі́цца**, -ро́сіцца.

**ПАРАСКАЛУ́ПВАЦЬ** *і* **ПАРАСКАЛУ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Раскалупаць усё, многае. *П. ранкі.*

**ПАРАСКАРЧО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Раскарчаваць усё, многае.

**ПАРАСКАШНЕ́ЦЬ** *гл.* раскашнець.

**ПАРАСКІДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАРАСКІ́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны;

*зак., каго-што.* Раскідаць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. адзенне.*

**ПАРАСКЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАРАСКЛА́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Раскласці, разлажыць усё, многае. *П. паперы на стале.*

**ПАРАСКЛЕ́ЙВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Расклеіцца — пра ўсё, многае. *Парасклейваліся табурэткі.*

**ПАРАСКЛЕ́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Расклеіць усё, многае. *П. аб'явы.*

**ПАРАСКО́ЛВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Раскалоць усё, многае. *П. кругглякі.*

**ПАРАСКО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Раскапаць усё, многае.

**ПАРАСКО́РМЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго (што).* Раскарміць усіх, многіх.

**ПАРАСКРАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАРАСКРА́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Раскрасці ўсё, многае.

**ПАРАСКРУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Раскруціць усё, многае.

**ПАРАСКРЫВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Раскрыцца — пра ўсё, многае ці ўсіх, многіх.

**ПАРАСКРЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Раскрыць усё, многае ці ўсіх, многіх. *П. дзяцей. П. стрэхі. П. расаду.*

**ПАРАСКРЫ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Раскрышыць усё, многае.

**ПАРАСКУ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Раскусіць усё, многае (*гл.* раскусіць у 1 знач.).

**ПА́РАСНІК**, -у, *м.* Малады лес, а таксама парасткі раслін ад каранёў, пнёў або з насення.

**ПАРАСО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыстасаванне для засцярогі ад дажджу або сонца ў выглядзе замацаванага на доўгай ручцы складнога каркаса, абцягнутага тканінай. **2.** Стрэшка над чым-н. **3.** Суквецце, у якога ўсе кветкі размешчаны ў адной плоскасці. ‖ *памянш.* **парасо́нік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **парасо́ністы**, -ая, -ае *і* **парасо́навы**, -ая, -ае. *Парасоністая пальма. Парасонавыя расліны* (морква, пятрушка).

**ПАРАСО́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* парасон. **2.** Тое, што і *парасон* (у 3 знач.).

**ПАРАСПАКО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Распакаваць усё, многае. *П. багаж.*

**ПАРАСПАЎЗА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Распаўзціся — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае. *Ракі параспаўзаліся.*

**ПАРАСПІЛО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Распілаваць усё, многае. *П. бярвенне.*

**ПАРАСПІ́СВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Распісацца — пра ўсіх, многіх або паставіць подпіс пад усім, многім.

**ПАРАСПІ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Распісаць усё, многае. *П. помнікі пісьменнасці на картке.*

**ПАРАСПІХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАРАСПІ́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Распіхаць усё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАРАСПЛЮ́ШЧВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Расплюшчыць (вочы) — пра ўсіх, многіх (*гл.* расплюшчыць[1]).

**ПАРАСПЛЮ́ШЧВАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Расплюшчыць усё, многае (*гл.* расплю́шчыць[2]).

**ПАРАСПЛЯТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Расплесціся — пра ўсё, многае.

**ПАРАСПЛЯТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Раплесці ўсё, многае.

**ПАРАСПО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Распароць усё, многае.

**ПАРАСПРАГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Распрэгчы ўсіх, многіх. *П. коней.*

**ПАРАСПРАДАВА́ЦЬ**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць; -дава́ны; *зак., каго-што.* Распрадаць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. рэчы.*

**ПАРАСПРАНА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Распрануцца — пра ўсіх, многіх.

**ПАРАСПРАНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Распрануць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАРАСПУ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Распудзіць усіх, многіх.

**ПАРАСПУСКА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Распусціцца — пра ўсё, многае або пра ўсіх, многіх. *Усе кветкі параспускаліся.*

**ПАРАСПУСКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Распусціць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. вучняў на канікулы. П. косы. П. старыя світары.*

**ПАРАСПУХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Распухнуць — пра ўсё, многае ці ўсіх, многіх. *Параспухалі ногі.*

**ПАРАСПЫ́РСКВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Распырскаць усё, многае. *П. адэкалон.*

**ПАРАСПЯРА́ЗВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Распаразацца — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае.

**ПАРАСПЯРА́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Распаразаць усё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАРАССА́ДЖВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Рассесціся — пра ўсіх, многіх (*гл.* рассесціся ў 1 і 2 знач.). *Госці парассаджваліся вакол стала.*

**ПАРАССА́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Рассадзіць усіх, многіх ці ўсё, многае. *П. буракі.*

**ПАРАССКУБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАРАССКУ́БВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Расскубці ўсё, многае.

**ПАРАССО́ЎВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Рассунуцца — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае. *Частаколіны падгнілі і парассоўваліся.*

**ПАРАССО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Рассунуць усё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАРАССТАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Расставіць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. крэслы ў зале.*

**ПАРАССТРЭ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Расстраляць усіх, многіх або ўсё, многае. *Здраднікаў і злачынцаў парасстрэльвалі.*

**ПАРАССЦІЛА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Разаслаць усё, многае (*гл.* разаслаць[2]).

**ПАРАССЫЛА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Разаслаць усіх, многіх або ўсё, многае (*гл.* разаслаць). *П. запрашэнні.*

**ПАРАССЫПА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Рассыпацца — пра ўсё, многае.

**ПАРАССЫПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Рассыпаць усё, многае.

**ПАРАССЫХА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Рассохнуцца — пра ўсё, многае. *Дзежкі парассыхаліся.*

**ПАРАССЯДА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Рассесціся — пра ўсіх, многіх.

**ПАРАССЯКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Рассячы ўсё, многае.

**ПАРАССЯЛЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -я́ецца; -я́емся, -я́ецеся, -я́юцца; *зак.* Рассяліцца — пра ўсіх, многіх.

**ПА́РАСТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Маладая галінка, сцябло расліны з лісцем, якое вырасла ад больш старога сцябла ці ствала, або малая галінка, якая вырасла ад кораня асноўнай расліны. *Маладыя парасткі на старым ствале.* **2.** Сцябло расліны ў самым пачатку яго развіцця з насення. *Насенне пусціла парасткі.* **3.** звычайна *мн., перан., чаго.* Першае праяўленне, пачатак чаго-н., зародак. *Парасткі новага.* ‖ *прым.* **па́расткавы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.; спец.).

**ПАРАСТО́ПТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Растаптаць усё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАРАСТО́ЧВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Растачыць усё, многае (*гл.* растачыць[1]). *П. адтуліны ў дэталях.*

**ПАРАСТО́ЧВАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Растачыць усё, многае. *Шашаль парасточваў сцены.*

**ПАРАСТО́ЧВАЦЬ**[3], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Растачыць усё, многае (*гл.* растачыць[3]). *П. каўняры ў кашулях.*

**ПАРАСТРАСА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца *і* **ПАРАСТРЭ́СВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Растрэсціся — пра ўсё, многае.

**ПАРАСТРАСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАРАСТРЭ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Растрэсці ўсё, многае. *П. сена.*

**ПАРАСТРУ́ШЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Раструшчыць усё, многае.

**ПАРАСТЫКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Растыкаць усё, многае. *П. тычкі на лузе.*

**ПАРАСХІНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Расхінуць усё, многае.

**ПАРАСХО́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -о́дзіцца; -о́дзімся, -о́дзіцеся, -о́дзяцца; *зак.* Тое, што і *паразыходзіцца.*

**ПАРАСХО́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Расхапіць, расхапаць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАРАСЦВІТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Расцвісці — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае. *Ружы парасцвіталі. Твары дзяўчат парасцвіталі ўсмешкамі.*

**ПАРАСЦІ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -расце́, -растýць; -ро́с, -расла́, -ло́; *зак., чым.* Пакрыцца раслiннасцю. *Акопы параслі травой. П. мохам.*

**ПАРАСЦІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Расцерці ўсё, многае.

**ПАРАСЦІСКА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Расціснуцца — пра ўсё, многае.

**ПАРАСЦІСКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Расціснуць усё, многае (*гл.* расціснуць у 1 і 2 знач.).

**ПАРАСЦЯГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАРАСЦЯ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Расцягаць усё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАРАСЦЯРУ́ШВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Расцерушыцца — пра ўсё, многае.

**ПАРАСЦЯРУ́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Расцерушыць усё, многае.

**ПАРАСЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Расцерабіць усё, многае. *П. кусты.*

**ПАРАСЧЫНЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́ецца; *зак.* Расчыніцца — пра ўсё, многае. *Ад выбуху вокны парасчыняліся.*

**ПАРАСЧЫНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Расчыніць усё, многае. *П. вокны.*

**ПАРАСЧЫШЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Расчысціць усё, многае. *П. дарогі.*

**ПАРАСЧЭ́СВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Расчасацца — пра ўсіх, многіх (*гл.* расчасацца[1]).

**ПАРАСЧЭ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Расчасаць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАРАСШПІ́ЛЬВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Расшпіліцца — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае.

**ПАРАСШПІ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Расшпіліць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. гузікі.*

**ПАРАСШЧАПЛЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́ецца *і* **ПАРАСШЧЭ́ПЛІВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Расшчапіцца — пра ўсё, многае.

**ПАРАСШЧАПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны *і* **ПАРАСШЧЭ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Расшчапіць усё, многае.

**ПАРАСЯ́** *і* **ПАРАСЁ**, -ся́ці, *мн.* -ся́ты, -ся́т, *н.* Дзіцяня свінні. ‖ *прым.* **парася́чы**, -ая, -ае.

**ПАРАСЯ́ЦІНА**, -ы, *ж.* Мяса парасяці як ежа.

**ПАРАТУ́НАК**, -нку, *м.* **1.** Ратунак, дапамога ў бядзе. *Клікаць на п. суседзяў.* **2.** Выхад з цяжкага становішча. *Не бачыць паратунку.*

**ПАРАТЫ́Ф**, -у, *м.* Інфекцыйная кішэчная хвароба, родная з брушным тыфам. ‖ *прым.* **паратыфо́зны**, -ая, -ае.

**ПАРАЎНАВА́ЦЦА**, -ну́юся, -ну́ешся, -ну́ецца; -ну́йся; *зак., з кім-чым* (разм.). Тое, што і *параўняцца.* ‖ *незак.* **параўно́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАРАЎНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць роўным, гладкім. *П. асфальт катком.* **2.** *што.* Зрабіць аднолькавым па даўжыні, вышыні і пад. *П. канцы вяроўкі.* **3.** *перан., каго.* Зрабіць аднолькавымі, падобнымі ў чым-н.

**ПАРАЎНА́ЛЬНА**, *прысл.* **1.** У дастатковай ступені, болей або меней. *П. невялікі тэрмін. Дзень прайшоў п. спакойна.* **2.** *у знач. прыназ. з Т.* У параўнанні з кім-, чым-н. (ужыв. з прыназ. «з»). *Гэта група п. з іншымі зрабіла вялікую работу.*

**ПАРАЎНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Заснаваны на параўнанні, які служыць для параўнання. *Параўнальныя даныя. П. метад даследавання.*

**ПАРАЎНА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* параўнаць. **2.** Слова або выраз, які змяшчае прыпадабненне аднаго прадмета да другога. *Народная творчасць багата параўнаннямі.* ◊ **У параўнанні** *з кім-чым* — ужыв. ў знач. прыназ.: параўнальна, калі параўнаць. *Сёлета ўраджай вышэйшы ў параўнанні з мінулым годам. Ён больш дасведчаны ў гэтай справе ў параўнанні з іншымі.*

**ПАРАЎНА́ЎЧА**, *прысл.* Тое, што і *параўнальна.*

**ПАРАЎНА́ЎЧЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *параўнальны.*

**ПАРАЎНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што з кім-чым.* **1.** Паставіўшы побач, супаставіць для ўстанаўлення падабенства ці розніцы. *П. два лікі.* **2.** Вобразна прыпадобніць. *Полаччыну можна п. са Швейцарыяй.* **3.** Зрабіць роўным, аднолькавым. *Умовы жыцця і падобныя акалічнасці параўналі гэтых людзей.* ‖ *незак.* **параўно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **параўна́нне**, -я, *н. і* **параўно́ўванне**, -я, *н. Не ідзе ў параўнанне (ні ў якое параўнанне) з кім-, чым-н.* (нельга параўноўваць).

**ПАРАЎНЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак., з кім-чым.* Рухаючыся, аказацца на адной лініі з кім-, чым-н. *Сонца параўнялася з вяршалінамі дрэў.* **2.** Стаць роўным, аднолькавым. *Дзеці параўняліся з бацькам.* **3.** Стаць нароўні з кім-, чым-н. у якіх-н. адносінах. *Нам цяжка п. з ёй у старраннасці.*

**ПАРАФІ́Н**, -у, *м.* Воскападобнае рэчыва, якое здабываецца пераважна з нафты. ‖ *прым.* **парафі́навы**, -ая, -ае.

**ПАРА́ФІЯ**, -і, *мн.* -і, -фій, *ж.* Акруга, тэрыторыя, што аб'ядноўвае вернікаў, якіх абслугоўваюць святары аднаго храма. *У гэтай царкве некалі была вялікая п.* ‖ *прым.* **парафія́льны**, -ая, -ае.

**ПАРАФІЯ́НІН**, -а, *мн.* -фія́не, -фія́н, *м.* Вернік якой-н. парафіі. ‖ *ж.* **парафія́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ПАРАФРА́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́з, *ж.* (кніжн.). **1.** Пераказ сваімі словамі або ў іншай форме зместу чаго-н., напр.: «аўтар гэтых радкоў» замест «я» ў мове аўтара. **2.** Інструментальная канцэртная п'еса, заснаваная на тэмах папулярных песень і оперных арый. Пашырана ў 19 ст. *П. піяніста-віртуоза Ф.Ліста.* ‖ *прым.* **парафрасты́чны**, -ая, -ае.

**ПАРАХАВЫ́** *гл.* порах.

**ПАРАХАЎНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* (уст.). Сумка, пасудзіна для захоўвання пораху. *Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах* (перан.: ёсць яшчэ сілы).

**ПАРАХНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *незак.* Ператварацца ў парахню. *Стары пень парахнее.*

**ПАРАХНЯ́**, -і́, *ж.* Дробныя, як пясок, сухія рэшткі сапрэлага або паточанага шашалем дрэва. *Бярвенне абярнулася на парахню. П. сыплецца з каго-н.* (вельмі стары; разм., пагард.).

**ПАРАХО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Судна з паравым рухавіком. *Плысці на параходзе.* ‖ *памянш.* **парахо́дны**, -ая, -ае.

**ПАРАХО́ДСТВА**, -а, *н.* Рух параходаў па водных шляхах, а таксама прадпрыемства па кіраўніцтве параходным транспартам. *Рачное п.*

**ПАРАША́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Рашыць усё, многае, перарашаць. *П. усе задачы.* **2.** *і без дап.* Рашаць некаторы час. *Парашаў з гадзіну і спыніўся.*

**ПАРАШО́К**, -шку́ *і* -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.* **1.** -шку́. Дробна расцёртыя частачкі цвёрдага рэчыва. *Зубны п.* (для чысткі зубоў). **2.** -шка́. Лекавае рэчыва пэўнай дазіроўкі ў раздробненым выглядзе. *Лякарства ў парашках.* ◊ **Сцерці ў парашок** *каго* (разм.). — жорстка расправіцца; звычайна як выраз пагрозы. ‖ *прым.* **парашко́вы**, -ая, -ае. *Парашковае малако* (з малочнага парашку).

**ПАРАШУ́Т**, -а, *М* -шу́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыстасаванне для скачка з самалёта ці

спуску грузу з купалам, які раскрываецца ў паветры. || *прым.* **парашу́тны**, -ая, -ае. *П. дэсант. П. спорт.*

**ПАРАШУТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *зак.* і *незак.* (спец.). Спускаючыся, паляцець (ляцець) з крайне малой скорасцю. || *зак.* таксама **спарашутава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й.

**ПАРАШУТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Парашутны спорт. *Піянеры парашутызму.*

**ПАРАШУТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які робіць скачкі з парашутам. || *ж.* **парашуты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **парашуты́сцкі**, -ая, -ае.

**ПАРАШЫ́ЦЬ**, -рашу́, -рэ́шыш, -рэ́шыць; *зак., што, на чым* і *з інф.* (разм.). **1.** Прыняць якое-н. рашэнне, рашыць. *Парашылі, што трэба ехаць неадкладна. Ну, на чым вы тут парашылі?* **2.** Падумаўшы, разважыўшы, прыйсці да якога-н. вываду. *Усё абгледзеўшы, мы парашылі, што нехта ўжо тут быў да нас.*

**ПАРВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ве́цца; *зак.* **1.** Разарвацца, раздзяліцца на часткі ад нацягвання. *Ніткі парваліся.* **2.** Стаць дзіравым, знасіцца да дзірак. *Панчохі парваліся.* **3.** *перан.* Спыніцца (пра знаёмства, адносіны і пад.). *Сувязь з падпольшчыкамі парвалася.*

**ПАРВА́ЦЬ**, -ву́, -ве́ш, -ве́; -вём, -вяце́, -ву́ць; -ві́; -ва́ны; *зак., што.* **1.** Разарваць або крыху падраць. *П. вяроўку. П. адзенне.* **2.** *перан., з кім.* Адразу, рэзка спыніць (знаёмства, адносіны і пад. з кім-н.). *П. дыпламатычныя адносіны. П. з ранейшымі сябрамі.* ◊ **Жылы парваць** (разм.) — надарвацца ад цяжкай працы. || *незак.* **парыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2 знач.).

**ПАРК**[1], -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Вялікі сад або пасаджаны гай з алеямі, кветнікамі і пад. *Разбіць п. П. культуры і адпачынку.* || *прым.* **па́ркавы**, -ая, -ае.

**ПАРК**[2], -а *і* -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** -а. Перасоўны склад для забеспячэння арміі. *Артылерыйскі п. Гарматны п.* **2.** -а. Месца стаянкі і рамонту транспартных сродкаў. *Аўтобусны п. Тралейбус ідзе ў п.* **3.** -у. Сукупнасць транспартных сродкаў, рухомы састаў, а таксама наогул сукупнасць машын, механізмаў і пад. *Аўтамабільны п. П. сельскагаспадарчых машын. Танкавы п.* || *прым.* **па́ркавы**, -ая, -ае.

**ПА́РКА** *гл.* парыць.

**ПАРКАЛЕНАБІЎНЫ**, -а́я, -о́е (спец.). Які мае адносіны да набіўкі малюнка на баваўняную тканіну.

**ПАРКА́ЛЬ**, -ю, *м.* Лёгкая баваўняная аднакаляровая або з набіўным малюнкам тканіна. || *прым.* **паркалёвы**, -ая, -ае.

**ПАРКА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Агароджа з бярвён, штыкецін або мураваная. || *памянш.* **парка́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* || *прым.* **парка́нны**, -ая, -ае.

**ПАРКАНУ́ЦЬ** *гл.* поркаць.

**ПАРКЕ́Т**, -у, -ке́це, *м.* Насціл на падлозе з дошчачак у форме розных узораў, геаметрычных фігур. || *прым.* **парке́тны**, -ая, -ае. *Паркетная падлога.*

**ПАРКЕ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па вырабе і насціле паркету.

**ПАРЛА́МЕНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Найвышэйшы заканадаўчы і прадстаўнічы орган у дэмакратычных дзяржавах. || *прым.* **парла́менцкі**, -ая, -ае.

**ПАРЛАМЕНТАРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Сістэма дзяржаўнай улады на чале з парламентам. || *прым.* **парламента́рны**, -ая, -ае.

**ПАРЛАМЕНТА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (кніжн.). Член парламента.

**ПАРЛАМЕНЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, упаўнаважаная адным з ваюючых бакоў для перагавораў з праціўнікам. || *прым.* **парламенцёрскі**, -ая, -ае.

**ПАРНА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. парнаграфічны, напр.: *парнабізнес, парназорка, парнафільм, парнашоу.*

**ПАРНАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Крайняя непрыстойнасць, цынічнасць у паказе чаго-н., звязанага з палавымі адносінамі. || *прым.* **парнаграфі́чны**, -ая, -ае.

**ПАРНАКАПЫ́ТНЫЯ**, -ых, *адз.* -ае, -ага, *н.* Атрад млекакормячых з двума аднолькава развітымі пальцамі (раздвоенымі капытамі).

**ПАРНА́С**, -а, *м.* **1.** (з вялікай літары). Гара ў Грэцыі, на якой, паводле павер'яў старажытных грэкаў, жылі Апалон і музы. **2.** *перан.* Сімвалічнае абазначэнне свету паэзіі і паэтаў. *Узыходзіць на Парнас.* || *прым.* **парна́скі**, -ая, -ае.

**ПА́РНАСЦЬ** *гл.* парны[2].

**ПАРНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Род цяпліцы ў выглядзе нізкіх градак, пакрытых зашклёнымі рамамі або празрыстай плёнкай, для вырошчвання расады, ранняй агародніны і пад. || *прым.* **парніко́вы**, -ая, -ае. ○ **Парніковы эфект** (спец.) — павышэнне сярэднегадавой тэмпературы з-за забруджання атмасферы чалавекам.

**ПА́РНЫ**[1], -ая, -ае. Які складае пару[1], для пары[1] (у 1, 3 і 4 знач.) з чым-н., які выконваецца, робіцца парай[1] (у 4 знач.). *Парная рукавіца. Парная вупраж. Парнае катанне на каньках.*

**ПА́РНЫ**[2], -ая, -ае. Душны, насычаны вільгаццю. *Парнае паветра.* || *наз.* **па́рнасць**, -і, *ж.*

**ПАРО́Г**, -а, *М* -ро́зе, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Бервяно або брус у ніжняй частцы дзвярнога праёма. *Пераступіць цераз п. На п. не пускаць каго-н.* (не пускаць каго-н. у дом). *Не выходзіць за п.* (не выходзіць з дому). *Ад парога хату не мятуць* (прыказка). **2.** *перан., каго.* Пярэдадзень, мяжа чаго-н. (кніжн.). *На парозе гібелі.* **3.** Камяністы папярочны выступ на дне ракі, які паскарае цячэнне і абцяжарвае суднаходства. *Пеняцца хвалі на парогах.* **4.** Найменшая магчымая велічыня, ступень праяўлення чаго-н. (спец.). *П. адчуванняў. П. чутнасці.* ◊ **З парога** (адхіліць, не прыняць і пад.; разм., неадабр.) — адразу, не ўваходзячы ў сутнасць справы. || *памянш.* **паро́жак**, -жка, *мн.* -жкі, -жкаў, *м.* (да 1 і 3 знач.). || *прым.* **паро́гавы**, -ая, -ае (да 4 знач.; спец.).

**ПАРО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ро́д, *ж.* **1.** Разнавіднасць свойскіх жывёл (або раслін), якія адрозніваюцца пэўнымі прыметамі ад жывёл (або раслін) таго ж віду. *Бельгійская п. коней. Вывесці новы гатунак вішань.* **2.** *перан.* Разрад, тып людзей, якія адрозніваюцца ад іншых сваім унутраным складам, характарам, аблічам. *Чалавек волатаўскай пароды.* **3.** Прыналежнасць да якой-н. сацыяльнай групы, саслоўя (уст.). **4.** Выкапнёвы мінерал, пласт у зямной кары. *Цвёрдыя пароды.*

**ПАРО́ДЗІСТЫ**, -ая, -ае. З ярка выражанымі прыметамі добрай пароды (у 1 і 3 знач.). *Пародзістая карова.* || *наз.* **паро́дзістасць**, -і, *ж.*

**ПАРО́ДНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які належыць да выведзеных, палепшаных парод (у 1 знач.), пародзісты. *Пародная жывёла.* || *наз.* **паро́днасць**, -і, *ж.*

**ПАРО́ДЫЯ**, -і, *мн.* -і, -дый, *ж.* **1.** Твор, сатырычны або камічна падроблены пад іншы твор. *П. на апавяданне.* **2.** *перан.* Насмешка, здзек са знешняга, няўдалага перайманне чаго-н., скажонага падабенства да чаго-н. *Не абутак, а адна п.* || *прым.* **парады́йны**, -ая, -ае *і* **парады́чны**, -ая, -ае. *Парадыйны жанр. Парадычны прыём.*

**ПАРО́ЖНІ**, -яя, -яе. Тое, што і *пусты* (у 1 знач.). *Парожняя дзежка.* ◊ **Пераліваць з пустога ў парожняе** (разм., неадабр.) — займацца пустой справай, пустымі размовамі.

**ПАРО́ЖЫСТЫ**, -ая, -ае. Які мае многа парогаў (у 3 знач.). *Парожыстае дно.* || *наз.* **паро́жыстасць**, -і, *ж.*

**ПАРО́К**, -у, *м.* У выразе: **парок сэрца** — паталагічныя змены анатамічнай структуры сэрца і часткі сасудаў, якія парушаюць яго функцыянаванне.

**ПАРО́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Сакрэтнае ўмоўнае слова (або словы, фраза) для апазнання сваіх на вайсковай службе, а таксама ў канспіратыўных арганізацыях.

**ПАРО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пласкадоннае судна або плыт для пераправы цераз раку, возера і пад. людзей, павозак, грузаў. *Рачны п.* **2.** Вялікагрузнае судна для перавозкі пасажыраў, грузаў, транспартных сродкаў. *Марскі п. Ехаць паромам з Даніі ў Швецыю.* || *прым.* **паро́мны**, -ая, -ае.

**ПАРО́МШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Перавозчык на пароме. || *ж.* **паро́мшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПАРО́СЛЫ**, -ая, -ае. Які зарос чым-н., пакрыты якой-н. расліннасцю. *Лагчына, парослая хмызняком.*

**ПАРО́СНАЯ**, *м.* і *н.* не ўжыв. Цяжарная (пра свінню). || *наз.* **паро́снасць**, -і, *ж.*

**ПАРО́ТНА**, *прысл.* Па ротах, адна рота за другой. *Строіцца п.*

**ПАРО́ЎНУ**, *прысл.* Роўнымі часткамі. *Падзяліць п.*

**ПАРО́ЦЦА**[1], пару́ся, по́рашся, по́рацца; пары́ся; *незак.* **1.** Калоць, пароць адзін аднаго чым-н. вострым. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і *бадацца* (разм.). *Каровы поруцца.* **3.** Тое, што і *капацца* (у 1 і 2 знач.). *Вы нешта доўга порацеся ў сшытках.*

**ПАРО́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., по́рацца; *незак.* Разрывацца па шве. *Сукенка пораццa.* ‖ *зак.* **распаро́цца**, -по́рацца.

**ПАРО́ЦЬ**[1], пару́, по́раш, по́ра; пары́; *незак.* **1.** *каго-што.* Калоць, тыкаць чым-н. вострым. *П. кійком гразь.* **2.** *што.* Разбураць, спорваць. *П. гнёзды.* **3.** *каго-што.* Бадаць (разм.). *Каровы поруць адна адну.* **4.** *каго-што.* Колючы, тыкаючы чым-н., прымушаць вылезці адкуль-н. *П. трусоў з малінніку.* ‖ *зак.* **распаро́ць**, -пару́, -по́раш, -по́ра; -пары́; -по́раты (да 2 і 3 знач.).

**ПАРО́ЦЬ**[2], пару́, по́раш, по́ра; пары́; *незак., што.* **1.** Разразаць, раз'ядноўваць па швах (сшытае). *П. стары халат.* **2.** У выразах: **пароць глупства** (разм.) — рабіць або гаварыць абы-што; **пароць гарачку** (разм., неадабр.) — рабіць што-н. неабдумана, паспешліва. ‖ *зак.* **распаро́ць**, -пару́, -по́раш, -по́ра; -пары́; -по́раты (да 1 знач.). ‖ *наз.* **по́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 1 знач.).

**ПАРО́ША**, -ы, *ж.* Снег, які толькі што выпаў. *Вецер змятае парошу.*

**ПАРО́Ю**, *прысл.* Тое, што і *калі-нікалі.*

**ПАРСЮ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Кастрыраваны самец свойскай свінні, кабан. ‖ *прым.* **парсючы́ны**, -ая, -ае.

**ПАРТ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. словам партыя, партыйны, напр.: *партгрупа, партз'езд, партканферэнцыя, партстаж.*

**ПА́РТА**, -ы, *ДМ* -рце, *мн.* -ы, парт, *ж.* Школьны стол з нахільнай дошкай, злучаны з лаўкай. *Сесці за парту* (таксама перан.: пачаць вучыцца).

**ПАРТАБА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Кішэнная каробка для папярос. ‖ *прым.* **партаба́чны**, -ая, -ае.

**ПАРТАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Работнік порта[1].

**ПАРТАКРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прадстаўнік партакратыі.

**ПАРТАКРА́ТЫЯ**, -і, *ж., зб.* Кіруючая партыйная вярхушка. ‖ *прым.* **партакраты́чны**, -ая, -ае.

**ПАРТА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Галоўны ўваход вялікага будынка, архітэктурна аформлены. **2.** Канструкцыя ў выглядзе рамы, якая перасоўваецца (па рэйках) або з'яўляецца часткай вялікіх машын, станкоў (спец.). ‖ *прым.* **парта́льны**, -ая, -ае. *П. кран.*

**ПАРТАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Зручны для нашэння пры сабе, для пераноскі. *П. радыёпрыёмнік.* ‖ *наз.* **партаты́ўнасць**, -і, *ж.*

**ПАРТА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм., пагард.). Чалавек, які нядбала, няўмела выконвае сваю работу.

**ПАРТА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* (разм.). Дрэнна, няўмела або неахайна рабіць што-н.; псаваць. ‖ *зак.* **напарта́чыць**, -чу, -чыш, -чыць *і* **спарта́чыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны.

**ПАРТВЕ́ЙН**, -у, *м.* Гатунак моцнага вінаграднага віна.

**ПАРТМАНЕ́Т**, -а, *М* -не́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі кашалёк.

**ПАРТНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Удзельнік гульні з кім-н. (на сцэне, у карты, у спорце і г.д.), а таксама наогул удзельнік якой-н. сумеснай дзейнасці. *Партнёры згадзіліся на нічыю. П. па домаўладанні.* **2.** Краіна — удзельнік якога-н. саюза, блока, пагаднення. *Дзяржавы — гандлёвыя партнёры.* ‖ *ж.* **партнёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (да 1 знач.; разм.). ‖ *прым.* **партнёрскі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПАРТО́ВЫ** *гл.* порт[1].

**ПАРТО́ЧНЫ** *гл.* порткі.

**ПАРТПЛЕ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльны чахол з рамянямі для перавозкі пасцельных рэчаў. ‖ *прым.* **партпле́дны**, -ая, -ае.

**ПАРТРЭ́Т**, -а, *М* -рэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адлюстраванне якога-н. чалавека на карціне, фатаграфіі, у скульптуры. *Скульптурны п. Групавы п.* (некалькіх асоб). *Літаратурны п.* (перан.; мастацкае апісанне каго-н.). ‖ *прым.* **партрэ́тны**, -ая, -ае. *П. жывапіс.*

**ПАРТРЭТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак — майстар партрэта. ‖ *ж.* **партрэты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПАРТСІГА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *партабак.* ‖ *прым.* **партсіга́рны**, -ая, -ае.

**ПАРТУГА́ЛЬЦЫ**, -аў, *адз.* -лец, -льца, *м.* Народ раманскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Партугальскай Рэспублікі. ‖ *ж.* **партуга́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **партуга́льскі**, -ая, -ае.

**ПАРТУПЕ́Я**, -і, *мн.* -і, -пе́й, *ж.* Рэмень, перавязь для нашэння халоднай зброі, палявой сумкі і г.д. ‖ *прым.* **партупе́йны**, -ая, -ае.

**ПАРТФЕ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Чатырохвугольная сумка з засцежкай, звычайна скураная, для нашэння кніг, папер. **2.** Пра пасаду міністра ў некаторых краінах; таксама кіруючая пасада наогул. *Размеркаванне партфеляў. Міністр без партфеля* (назва асобай міністэрскай пасады). **3.** *перан.* Рукапісы, прынятыя да друку выдавецтвам, рэдакцыяй. *Рэдакцыйны п.* ‖ *прым.* **партфе́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПАРТШЭ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Род лёгкага пераноснага крэсла, у якім можна сядзець у паўляжачым стане. ‖ *прым.* **партшэ́зны**, -ая, -ае.

**ПАРТЫЗА́Н**, -а, *мн.* -ы, -за́н *і* -за́наў, *м.* Удзельнік партызанскай вайны, баец партызанскага атрада. *Партызаны — народныя мсціўцы.* ‖ *ж.* **партыза́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **партыза́нскі**, -ая, -ае.

**ПАРТЫЗА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.* (разм.). Быць партызанам, ваяваць, знаходзіцца ў партызанскім атрадзе.

**ПАРТЫЗА́НСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* партызан. **2.** Які мае адносіны да ўзброенай народнай барацьбы супраць іншаземных захопнікаў, што праводзіцца ў тыле ворага атрадамі, якія дзейнічаюць самастойна. *Партызанская вайна. П. атрад.*

**ПАРТЫЗА́НШЧЫНА**, -ы, *ж.* (разм., неадабр.). Неарганізаваныя, анархічныя дзеянні, якія парушаюць дысцыпліну.

**ПАРТЫ́ЙНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Прыналежнасць да партыі (у 1 знач.). **2.** Накіраванасць у рабоце, дзейнасці, прасякнутая пэўнай ідэалогіяй.

**ПАРТЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* партыя. **2.** Які выражае інтарэсы партыі (у 1 знач.). **3.** Прасякнуты пэўнай ідэалогіяй, які ажыццяўляе палітыку якой-н. партыі.

**ПАРТЫТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ту́р, *ж.* (спец.). Сукупнасць усіх партый шматгалосага музычнага твора. ‖ *прым.* **партыту́рны**, -ая, -ае.

**ПА́РТЫЯ**, -і, *мн.* -і, -тый, *ж.* **1.** Палітычная арганізацыя грамадскага класа, якая выражае і абараняе яго інтарэсы. *Палітычныя партыі. Сацыял-дэмакратычная п.* **2.** Група людзей, аб'яднаных агульнасцю інтарэсаў, а таксама тых, што сабраліся з якой-н. мэтай. *П. геолагаў.* **3.** Асобная частка ў шматгалосым музычным творы, якая выконваецца адным інструментам, адным спеваком. *П. фартэпіяна. П. Сяргея ў оперы Я.Цікоцкага «Дзяўчына з Палесся».* **4.** Адна гульня (у шахматы, шашкі, карты і пад.). *Шахматная п.* **5.** Пэўная колькасць тавару. *П. летняга адзення.* **6.** Пра жаніцьбу або замужжа (уст.). *Выгадная п.* ‖ *прым.* **парты́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПАРТЭ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ніжні паверх глядзельнай залы з месцамі для публікі. ‖ *прым.* **партэ́рны**, -ая, -ае.

**ПАРУБІ́ЦЬ**, -рублю́, -ру́біш, -ру́біць; -ру́блены; *зак., што.* Абрубіць, падшыць усё, многае. *П. ручнікі.*

**ПАРУ́БКА**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* Незаконная высечка лесу, а таксама месца, дзе высякаецца лес. ‖ *прым.* **пару́бачны**, -ая, -ае (спец.). *Парубачныя рэшткі.*

**ПАРУ́БШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца парубкай, высечкай лесу.

**ПАРУДЗЕ́ЦЬ** *гл.* рудзець.

**ПАРУЖАВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які паружавеў. *Паружавелыя бакі ягад.*

**ПАРУЖАВЕ́ЦЬ** *гл.* ружавець.

**ПАРУ́КА**, -і, *ДМ* -ру́цы, *мн.* -і, -ру́к, *ж.* Прынятая на сябе адказнасць за выкананне, пацвярджэнне чаго-н., зарука. *Аддаць, узяць на парукі каго-н.* (на чыю-н. адказнасць).

**ПАРУ́ПІЦЦА** *гл.* рупіцца.

**ПА́РУС**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Умацаваны на мачце вялікі кавалак моцнай тканіны, якая надзімаецца ветрам і прыводзіць у рух судна. *Ісці на ўсіх парусах. Падняць*

*парусы* (паставіць і разгарнуць парусы на судне). ‖ *прым.* **пáрусны**, -ая, -ае. *П. спорт.*

**ПАРУСІ́НА**, -ы, *ж.* Грубая, тоўстая льняная тканіна, якая першапачаткова ішла на парусы. ‖ *прым.* **парусíнавы**, -ая, -ае.

**ПА́РУСНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Паруснае судна.

**ПАРУХА́ВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* Стаць больш рухавым. *Сёння Саўка парухавеў.*

**ПАРУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** Паварушыць чым-н. *П. пальцамі.* **2.** *што.* Прывесці што-н. у рух. *П. стрэлку.*

**ПАРУ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У царскай арміі: афіцэрскі чын, рангам вышэйшы за падпаручніка і ніжэйшы за штабс-капітана, а таксама асоба, якая мае гэта званне. ‖ *прым.* **пару́чніцкі**, -ая, -ае.

**ПАРУЧЫ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (спец.). Той, хто прыняў на сябе паручыцельства. ‖ *ж.* **паручы́целька**, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек. ‖ *прым.* **паручы́цельскі**, -ая, -ае.

**ПАРУЧЫ́ЦЕЛЬСТВА**, -а, *н.* (афіц.). Адказнасць, якая бярэцца кім-н. на сябе ў забеспячэнне абавязацельстваў другой асобы. ‖ *прым.* **паручы́цельскі**, -ая, -ае.

**ПАРУЧЫ́ЦЦА** *гл.* ручацца.

**ПАРУША́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто парушае якія-н. правілы, законы, звычаі. *П. дысцыпліны. П. граніцы.* ‖ *ж.* **паруша́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАРУШЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Маленькая часцінка чаго-н., пылінка. *Выняць парушынку з вока.*

**ПАРУ́ШЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шыцца; *зак.* Перарвацца, спыніцца ў сваім нармальным развіцці, плыні. *Спакой парушыўся.* ‖ *незак.* **паруша́цца**, -áецца.

**ПАРУ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак.* **1.** *што.* Перашкодзіць нармальнаму стану, развіццю чаго-н., перарваць. *П. маўчанне. П. сон.* **2.** *што.* Не захаваць чаго-н., пераступіць што-н. *П. дагавор. П. дысцыпліну. П. граніцу* (незаконна перайсці яе). **3.** *каго-што.* Скрануць, разварушыць. *П. пчол. П. яйкі ў птушыным гняздзе.* ‖ *незак.* **паруша́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **парушэ́нне**, -я, *н.*

**ПАРФІ́Р**, -у, *м.* Вулканічная горная парода, якая выкарыстоўваецца як будаўнічы матэрыял. ‖ *прым.* **парфíравы**, -ая, -ае.

**ПАРФІ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -фíр, *ж.* Пурпуровая мантыя манарха.

**ПАРФІ́РНЫ**, -ая, -ае (высок., уст.). Чырвоны, пурпурны.

**ПАРФУ́МА**, -ы, *ж.* Духі, адэкалон. ‖ *прым.* **парфу́мны**, -ая, -ае. *П. магазін.*

**ПАРФУМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік парфумернай вытворчасці.

**ПАРФУМЕ́РЫЯ**, -і, *ж.* Араматычныя і касметычныя тавары, а таксама вытворчасць іх і гандаль імі. ‖ *прым.* **парфуме́рны**, -ая, -ае. *П. аддзел.*

**ПАРЦЫЁН**, -у, *м.* (уст., спец.). Паёк, порцыя. *Дзённы п.* ‖ *прым.* **парцыённы**, -ая, -ае.

**ПАРЦЬЕ́**, *нескл., м.* Служачы, які распараджаецца захоўваннем ключоў, прыёмам пошты і інш. абслугоўваннем у вестыбюлі гасцініцы.

**ПАРЦЬЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -éр *і* -éраў, *ж.* Занавеска з цяжкай тоўстай тканіны для акна або дзвярэй. *Аксамітавыя парцьеры.* ‖ *прым.* **парцье́рны**, -ая, -ае.

**ПАРЦЯНЫ́**, -áя, -óе. Баваўняны, ільняны, не шарсцяны. *Аснова парцяная, а ўток суконны.*

**ПАРЧА́**, -ы́, *ж.* Шчыльная ўзорыстая шаўковая тканіна, патыканая залатымі або сярэбранымі ніткамі. ‖ *прым.* **парчо́вы**, -ая, -ае.

**ПАРША́**, -ы́, *ж.* **1.** Заразная скурная хвароба, а таксама струпы, якія паяўляюцца пры гэтай хваробе на скуры пад валасамі. **2.** Захворванне сельскагаспадарчых раслін, якое характарызуецца паверхневым паражэннем тканак (з'яўленнем на сцёблах, лісці, клубнях, пладах плям, барадавак і пад.).

**ПАРШЫ́ВЕЦ**, -ы́ўца, *мн.* -ы́ўцы, -ы́ўцаў, *м.* (разм.). Дрэнны, паршывы (у 2 знач.) чалавек, нягоднік. ‖ *ж.* **паршы́ўка**, -і, *ДМ* -ы́ўцы, *мн.* -ы́ўкі, -ы́вак.

**ПАРШЫ́ВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *незак.* (разм.). Пакрывацца паршой. ‖ *зак.* **запаршы́вець**, -ею, -ееш, -ее *і* **апаршы́вець**, -ею, -ееш, -ее.

**ПАРШЫ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Пакрыты паршой. *П. кот.* **2.** *перан.* Вельмі дрэнны, не варты ўвагі (разм.). *Паршывыя дровы.* ‖ *наз.* **паршы́васць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**ПАРЫВА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак., з інф.* Настойліва імкнуцца, намервацца што-н. зрабіць. *Яна ўвесь час парывалася нешта сказаць.*

**ПАРЫВА́ЦЬ** *гл.* парваць.

**ПАРЫ́ВІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** З рэзкімі раптоўнымі парывамі, няроўны. *П. вецер.* **2.** Рэзкі, імклівы, не плаўны. *Парывістыя рухі.* **3.** Які дзейнічае парывамі (у 2 знач.), які лёгка захапляецца. *Парывістая натура.* ‖ *наз.* **пары́вістасць**, -і, *ж.* *П. у рухах, манерах.*

**ПАРЫЖЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які парыжэў, выцвіў. *П. капялюш.*

**ПАРЫЖЭ́ЦЬ** *гл.* рыжэць.

**ПАРЫ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Накладная прычоска з натуральных ці сінтэтычных валасоў, нашытых на аснову. *Насіць п. Акцёр у парыку.* ‖ *памянш.* **парычо́к**, -чкá, *мн.* -чкí, -чкóў, *м.* ‖ *прым.* **парыко́вы**, -ая, -ае.

**ПАРЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для таго, каб пáрыць (у 1 і 2 знач.), пáрыцца. *П. чан.*

**ПАРЫ́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* **1.** Аддзяленне ў лазні, дзе парацца. **2.** Аддзяленне на фабрыцы, дзе што-н. параць (спец.).

**ПАРЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* **1.** У фехтаванні: адбіць (адбіваць) удар праціўніка. **2.** *перан.* Адразу, хутка прывесці (прыводзіць) бясспрэчныя пярэчанні супраць чаго-н. (кніжн.). *П. доказы апанентаў.* ‖ *зак.* таксама **адпары́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**ПАРЫТЭ́Т**, -у, *М* -рытэ́це, *м.* **1.** Роўнасць, раўнапраўе бакоў (кніжн.). **2.** Адносіны паміж валютамі розных краін у золаце (спец.).

**ПАРЫТЭ́ТНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Роўны, які ажыццяўляецца на аснове парытэту. *Парытэтнае прадстаўніцтва. На парытэтных пачатках.* ‖ *наз.* **парытэ́тнасць**, -і, *ж.*

**ПАРЫ́Ў**, -ы́ву, *мн.* -ы́вы, -ы́ваў, *м.* **1.** Раптоўнае рэзкае ўзмацненне (пра вецер). **2.** Моцнае імгненнае праяўленне якога-н. пачуцця; душэўны ўздым, які суправаджаецца імкненнем зрабіць што-н. *Працоўны п. Наступальны п.*

**ПАРЫХЛЕ́ЦЬ** *гл.* рыхлець.

**ПА́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *незак.* **1.** *гл.* парыць. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Варыцца ў закрытай пасудзіне пры дапамозе пары. **3.** Знаходзіцца ў вельмі цёплым, гарачым памяшканні або быць надта цёпла апранутым (разм.). *На дварэ такая цеплыня, а ты парышся ў гэтым кажуху.* **4.** *перан., над чым* і *без дап.* Тое, што і *пацець* (у 3 знач.; разм.). *П. над задачай.*

**ПА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* **1.** *каго-што.* Апрацоўваць парай, варам (для ачысткі, знішчэння насякомых і г.д.). *П. бочку. П. бялізну.* **2.** *каго (што).* Хвастаць венікам (у лазні, каб выклікаць пот). **3.** *што.* Варыць у закрытай пасудзіне пры дапамозе пары. *П. гарох.* **4.** *каго.* Вельмі цёпла апранаць (разм.). *Што ты парыш дзіця ў гэтым паліто.* **5.** *што.* Кіпяціць (пра малако). **6.** *безас.* Пра вельмі гарачае вільготнае надвор'е. *Увесь дзень парыла.* ◊ **Парыць зямлю** або **косці** (разм.) — не жыць, ляжаць у магіле. ‖ *звар.* **пáрыцца**, -руся, -рышся, -рыцца. ‖ *наз.* **пáранне**, -я, *н.* (да 1—5 знач.) *і* **пáрка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 1—5 знач.; разм.).

**ПАРЭ́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Парэзанае месца. *П. на руцэ.*

**ПАРЭ́ЗАЦЬ**, -э́жу, -э́жаш, -э́жа; -э́ж; -э́заны; *зак.* **1.** *што.* Параніць чым-н. вострым. *П. руку.* **2.** *што* і *чаго.* Нарэзаць у якой-н. колькасці, разрэзаць на часткі. *П. дроў.* **3.** *каго (што).* Зарэзаць у якой-н. колькасці. *П. гусей.* ‖ *звар.* **парэ́зацца**, -э́жуся, -э́жашся, -э́жацца; -э́жся (да 1 знач.).

**ПАРЭ́Й**, -ю, *м.* Від цыбульнай расліны, прыгодны для яды. *Цыбуля-п.*

**ПАРЭКАМЕНДАВА́ЦЬ** *гл.* рэкамендаваць.

**ПАРЭ́НЧА**, -ы, звычайна *мн.* -ы, -аў, *ж.* Тое, што і *поручань.* ‖ *прым.* **парэ́нчавы**, -ая, -ае.

**ПАРЭ́ПАЦЦА** *гл.* рэпацца.

**ПАРЭ́ЧКІ**, -чак, *адз.* парэ́чка, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* Кустовая ягадная расліна з ядомымі кісла-салодкімі ягадамі, а таксама самі гэтыя ягады. *Чырвоныя, чорныя, белыя п.* ‖ *прым.* **парэ́чкавы**, -ая, -ае. *Парэчкавае варэнне. П. куст.*

**ПАС**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыстасаванне ў выглядзе паласы скуры (або шчыльнай тканіны) для прывядзення ў рух механізма. *Злучыць пасам малатарню з трактарам.* **2.** Тое, што і *пояс* (у 1 знач.), *пасак* (у 1 знач.). ‖ *прым.* **па́савы**, -ая, -ае. *Пасавае кола сячкарні.*

**ПАС**[2], *выкл.* **1.** У картачных гульнях: вокліч аб адказе ад удзелу ў дадзеным розыгрышы. *Аб'явіць п. Я пас!* **2.** *перан., у знач. вык.* Не ў сілах, вымушаны адмовіцца што-н. зрабіць (разм.). *Тут я пас.*

**ПАС**[3], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У спартыўных гульнях: перадача мяча партнёру. *Дакладны п. П. мне!* (у гульнях: пасуй!).

**ПАСАВА́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -су́е; *незак.* Падыходзіць, адпавядаць каму-, чаму-н. *Табе вельмі пасуе гэты касцюм.*

**ПАСАВА́ЦЬ**[2], -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; *незак.* **1.** Заяўляць пас[2] (у 1 знач.) у картачнай гульні. **2.** *перан.* Прызнаючы сябе бяссільным, нядзольным, адказвацца ад далейшых намаганняў, здавацца. *Не п. ні перад чым.* ‖ *зак.* **спасава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й.

**ПАСАВА́ЦЬ**[3], -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; *незак.* У гульнях з мячом: перадаваць мяч, даваць пас[3]. *П. свайму іграку.* ‖ *зак.* **спасава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й. ‖ *аднакр.* **пасану́ць**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (разм.). ‖ *наз.* **пасо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -со́вак, *ж.*

**ПАСАВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *пасалавелы.*

**ПАСАВЕ́ЦЬ** *гл.* савець.

**ПАСА́Г**, -у, *м.* Маёмасць, якую даюць бацькі ці родзічы маладой, калі яна выходзіць замуж. *Нявеста з пасагам.* ‖ *прым.* **паса́жны**, -ая, -ае. *П. скарб.*

**ПАСА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У 10—18 стст. гандлёва-рамесніцкая частка горада, звычайна па-за гарадской сцяной, у Кіеўскай Русі, Вялікім Княстве Літоўскім, Расійскай дзяржаве. *У горадзе Полацку было шэсць пасадаў.* **2.** Прыгарад, прадмесце (уст.). **3.** У вясельным абрадзе: месца (звычайна дзяжа, пакрытая кажухом), куды садзяць нявесту, часам і жаніха. ‖ *прым.* **паса́дскі**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Пасадскія людзі* (рамеснікі і гандляры ў гарадах Старажытнай Русі).

**ПАСА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -са́д, *ж.* Службовае месца. *П. старшыні. Штатная п.*

**ПАСАДЖО́НЫ**, -ая, -ае. Які выконвае ролю бацькоў жаніха або нявесты ў народным вясельным абрадзе. *П. бацька. Пасаджоная маці.*

**ПАСАДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ** *гл.* садзейнічаць.

**ПАСАДЗІ́ЦЬ** *гл.* садзіць.

**ПАСА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** *гл.* садзіць. **2.** *мн.* Месца, на якім пасаджаны расліны. *Пасадкі маладога сасонніку.* **3.** Спуск і прызямленне лятальнага апарата. *Мяккая п. Вымушаная п. Ісці, заходзіць на пасадку.* **4.** Манера, спосаб трымацца ў сядле. *Кавалерыйская п.* ‖ *прым.* **паса́дачны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.). *П. матэрыял. Пасадачная платформа.*

**ПАСА́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Намеснік князя ў Старажытнай Русі, таксама выбарны галава грамадзянскай адміністрацыі ў феадальных рэспубліках. *Княжацкі п. Пскоўскі п.* ‖ *ж.* **паса́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **паса́дніцкі**, -ая, -ае.

**ПАСА́Ж**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Крытая галерэя з гандлёвымі памяшканнямі. ‖ *прым.* **паса́жны**, -ая, -ае.

**ПАСА́Ж**[2], -у, *м.* -ы, -аў, *м.* Частка музычнага твора, звычайна віртуознага характару. *Іграць цяжкі п.*

**ПАСАЖЫ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які ажыццяўляе паездку на цягніку, параходзе або іншым відзе транспарту. ‖ *ж.* **пасажы́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **пасажы́рскі**, -ая, -ае. *П. параход.*

**ПАСАЖЫРАПАТО́К**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Колькасць пасажыраў, якія едуць у пэўным напрамку.

**ПА́САК**, -ска, *мн.* -скі, -скаў, *м.* **1.** Вузкі доўгі кавалак чаго-н. (тканіны, скуры і пад.); рэмень, шнурок, матуз і пад. *Кроіць скуру на паскі. Падпяразацца паскам.* **2.** Шырокая рыска, палоска на чым-н. *Рыжая карова з белымі паскамі на спіне.* **3.** Частка збруі — рэмень, працягнуты ад адной аглоблі да другой цераз падсядзёлак.

**ПАСАЛАВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Невыразны, мутны ад стомленасці, ап'янення і пад. (пра вочы).

**ПАСАЛАВЕ́ЦЬ** *гл.* салавець.

**ПАСАЛАДЗІ́ЦЬ** *гл.* саладзіць.

**ПАСАЛІ́ЦЬ** *гл.* саліць.

**ПАСАРАМАЦІ́ЦЬ** *гл.* сараматіць.

**ПАСАРО́МЕЦЦА** *гл.* саромецца.

**ПАСАРО́МІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак.* **1.** *каго (што).* Зрабіць так, каб было сорамна каму-н. *П. свавольнікаў.* **2.** *каго-што.* Зняславіць, абняславіць. *Не п. гонару бацькоў.*

**ПАСАСКА́КВАЦЬ** *і* **ПАСАСКО́КВАЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ае; -аем, -аеце, -аюць; *зак.* Саскочыць — пра ўсё, многае або ўсіх, многіх. *Хлопцы пасаскоквалі з коней.*

**ПАСАСКРАБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАСАСКРЭ́БВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Саскрэбці ўсё, многае.

**ПАСАСТАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Саставіць усё, многае. *П. снапы ў бабкі.*

**ПАСАСТРУ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Састругаць усё, многае.

**ПАСА́Т**, -у, *М* -са́це, *м.* Сухі трапічны вецер, які пастаянна дзьме ад субтрапічных шырот у бок экватара. ‖ *прым.* **паса́тны**, -ая, -ае.

**ПАСАЧЫ́ЦЬ**, -сачу́, -со́чыш, -со́чыць; *зак., за кім-чым.* Правесці некаторы час сочачы (*гл.* сачыць[1]). *П. за дзецьмі.*

**ПАСАШМО́РГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Сашмаргнуць усё, многае.

**ПАСАШЧАПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны *і* **ПАСАШЧЭ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Сашчапіць усё, многае.

**ПАСАШЧЫ́КВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Сашчыкнуць усё, многае. *Гусі пасашчыквалі лісце буракоў.*

**ПАСВАВО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *зак.* Правесці некаторы час сваволячы. *Пасваволілі — і хопіць.*

**ПАСВАРЫ́ЦЦА** *гл.* сварыцца.

**ПАСВАРЫ́ЦЬ** *гл.* сварыць.

**ПАСВА́ТАЦЦА** *гл.* сватацца.

**ПАСВА́ТАЦЬ** *гл.* сватаць.

**ПАСВЕ́ДЧАННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* пасведчыць. **2.** Дакумент, які пацвярджае які-н. юрыдычны факт. *П. аб нараджэнні.*

**ПАСВЕ́ДЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *што, аб чым і з дадан. сказам.* Сцвердзіць, засведчыць што-н. *Усё гэта могуць п. не словы, а рэальныя факты.* **2.** Выступіць у ролі сведкі. ‖ *наз.* **пасве́дчанне**, -я, *н.*

**ПАСВІСТА́ЦЬ**, -вішчу́, -ві́шчаш, -ві́шча; -вішчы́; *зак.* Свістаць некаторы час, свіснуць некалькі разоў.

**ПА́СВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -се́цца *і* -свіцца; *незак.* Быць на падножным корме (пра жывёлу, птушку). *На лузе пасвіўся статак.*

**ПА́СВІЦЬ**, -су́, -се́ш, -се́; -сём, -сяце́, -су́ць *і* -су́, -свіш, -свіць; -свім, -свіце, -свяць; -свіў, -віла; -сі́; *незак., каго-што.* Наглядаць за кім-, чым-н. (жывёлай, птушкай) у час выгану на падножны корм. *П. коней. П. статак. П. гусей.* ‖ *наз.* **пась-ба́**, -ы́, *ж.*

**ПАСВЯЖЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які пасвяжэў, стаў свежым. *Пасвяжэлая пасля дажджу расліннасць.*

**ПАСВЯЖЭ́ЦЬ** *гл.* свяжэць.

**ПАСВЯНЦІ́ЦЬ** *гл.* свянціць.

**ПАСВЯТЛЕ́ЦЬ** *гл.* святлець.

**ПАСВЯЦІ́ЦЬ**[1] *гл.* свяціць[1].

**ПАСВЯЦІ́ЦЬ**[2], -вячу́, -ве́ціш, -ве́ціць; -вячо́ны; *зак.* **1.** *гл.* свяціць[2]. **2.** *каго (што) у што.* Пазнаёміць з чым-н. патаемным, не ўсім вядомым. *П. сяброўку ў сваю тайну.* ‖ *незак.* **пасвяча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2 знач.). ‖ *наз.* **пасвячэ́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ПАСВЯЦІ́ЦЬ**[3], -вячу́, -ве́ціш, -ве́ціць; -вячо́ны; *зак., каго (што) у што.* Надаць які-н. сан, званне з дапамогай пэўных абрадаў. *П. у епіскапы.* ‖ *незак.* **пасвяча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пасвячэ́нне**, -я, *н.*

**ПА́СЕКА**, -і, *ДМ* -секы, *мн.* -і, -сек, *ж.* **1.** Высечаная дзялянка лесу; месца, дзе высечаны лес. *Раскарчоўваць пасеку.* **2.** Месца, дзе размешчаны вуллі з пчоламі і спецыяльныя будынкі. ‖ *прым.* **па́сечны**, -ая, -ае.

**ПАСЕ́КЧЫ** *гл.* пасячы.

**ПАСЕ́КЧЫСЯ** *гл.* сячыся.

**ПАСЕ́ЛІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *н.* **1.** Месца, на якім у старажытнасці было размешчана пасяленне, селішча. *Раскопкі старажытнага паселішча.* **2.** Месца, заселенае людзьмі — вёска, сяло і пад.

**ПАСЕРАБРЫ́ЦЬ** *гл.* серабрыць.

**ПАСЕ́СЦІ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ся́дзе; -ся́дзем, -ся́дзеце, -ся́дуць; *зак.* Сесці — пра ўсіх, многіх ці ўсё, многае.

**ПАСЕ́Ў**, -е́ву, *м.* **1.** *гл.* сеяць *і* пасеяць. **2.** *мн.* -е́вы, -е́ваў. Тое, што пасеяна, засеяная плошча. ‖ *прым.* **пасяўны́**, -а́я, -о́е. *Пасяўныя работы.*

**ПАСЕ́ЯЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; -е́й; -е́яны; *зак., што.* **1.** *гл.* сеяць. **2.** Змясціць мікраарганізмы ў пажыўнае асяроддзе (спец.). **3.** Згубіць (разм.). *Дзе ты пасеяў шапку?* ‖ *наз.* **пасе́ў**, -е́ву, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**ПАСЁЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* Невялікі населены пункт, размешчаны звычайна недалёка ад горада ці асноўнага пасялення. *Рыбацкі п. Дачны п.* ‖ *прым.* **пасялко́вы**, -ая, -ае. *П. Савет.*

**ПАСІВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які пасівеў, стаў сівым. *Пасівелыя скроні.*

**ПАСІВЕ́ННЕ** *гл.* сівець.

**ПАСІВЕ́ЦЬ** *гл.* сівець.

**ПАСІ́ВЕРАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* Абветрыцца, патрэскацца ад ветру, сіверу. *Губы пасівералі.*

**ПАСІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Адпаведны з сіламі, магчымасцямі. *Пасільная праца. Пасільная задача.* ‖ *наз.* **пасі́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАСІНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў сінім, пераважна ад холаду. *Пасінелыя рукі.*

**ПАСІНЕ́ННЕ** *гл.* сінець.

**ПАСІНЕ́ЦЬ** *гл.* сінець.

**ПАСІ́ПНУЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -не; -нем, -неце, -нуць; пасі́плі; *зак.* Асіпнуць — пра ўсіх, многіх. *Спевакі пасіплі.*

**ПАСІРАЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -е́е; -е́ем, -е́еце, -е́юць; *зак.* Стаць сіротамі, асірацець — пра ўсіх, многіх.

**ПАСІРАЦІ́ЦЬ**, -рачу́, -ро́ціш, -ро́ціць; *зак., каго.* Зрабіць сіротамі ўсіх, многіх. *Вайна пасіраціла дзяцей.*

**ПАСІ́Ў**, -і́ву, *м.* (спец.). Сукупнасць даўгоў і абавязацельстваў прадпрыемства; *проціл.* актыў[2]. ‖ *прым.* **пасі́ўны**, -ая, -ае. *П. рахунак.*

**ПАСІ́ЎНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Які не праяўляе дзейнасці, неэнергічны, абыякавы да ўсяго; *проціл.* актыўны. *П. наглядальнік. Пасіўна* (прысл.) *адносіцца да чаго-н.* **2.** Залежны, пазбаўлены самастойнасці. *Іграць пасіўную ролю ў чым-н.* **3.** Пра знешні гандаль: такі, пры якім увоз перавышае вываз (спец.). *П. баланс знешняга гандлю.* ‖ *наз.* **пасі́ўнасць**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ПАСІ́ЎНЫ**[2] *гл.* пасіў.

**ПАСКАКА́ЦЬ**, -скачу́, -ска́чаш, -ска́ча; -скачы́; *зак.* **1.** Правесці некаторы час скачучы. *П. на вяселлі.* **2.** Пачаць скакаць, кінуцца наўскач. *Заяц паскакаў у лес.*

**ПАСКАЛУ́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Скалупаць усё, многае.

**ПАСКАРА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Устройства, установка для паскарэння якіх-н. працэсаў, руху чаго-н. *Пнеўматычны п.*

**ПАСКАРАЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* Скарацiць усё, многае. *П. тэрміны выканання работ.*

**ПАСКА́РДЗІЦЦА** *гл.* скардзіцца.

**ПАСКАРО́ДЗІЦЬ** *гл.* скародзіць.

**ПАСКАРЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* паскорыцца, паскорыць. **2.** У фізіцы: велічыня хуткасці руху за адзінку часу. *Адзінка паскарэння.*

**ПАСКВА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак., што.* **1.** Перасквáрыць усё, многае. *П. сала.* **2.** і *без дап.* Скварыць некаторы час.

**ПА́СКВІЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Твор паклёпніцкага, зняважальнага характару. *Злосны п.* ‖ *прым.* **па́сквільны**, -ая, -ае.

**ПАСКВІЛЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтар пасквіля. ‖ *прым.* **пасквіля́нцкі**, -ая, -ае.

**ПАСКІДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАСКІ́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Скінуць усё, многае або ўсіх, многіх. *Хлопцы паскідалі адзенне і хутчэй у возера.*

**ПАСКЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАСКЛА́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Скласці ўсё, многае. *П. сена ў копы.* **2.** і *без дап.* Складаць (складваць) некаторы час.

**ПАСКЛЕ́ЙВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Склеіцца — пра ўсё, многае. *Лісты пасклейваліся.*

**ПАСКЛЕ́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Склеіць усё, многае.

**ПАСКЛЁЎВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; -аны; *зак., што.* Скляваць усё, многае. *Птушкі пасклёўвалі ягады рабіны.*

**ПАСКЛІКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго (што).* Склікаць усіх, многіх. *П. гасцей.*

**ПАСКНА́РНІЧАЦЬ** *гл.* скнарнічаць.

**ПАСКО́ЛВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Скалоць усё, многае (*гл.* скалоць[1]). *П. ломам лёд.* **2.** і *без дап.* Сколваць некаторы час.

**ПАСКО́ЛВАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Скалоць, змацаваць разам (шпількай) усё, многае. *П. кавалкі матэрыі.* **2.** *каго-што.* Параніць у многіх месцах або многіх чым-н. вострым, калючым. *П. ногі ржышчам.* **3.** *каго-што* і *без дап.* Сколваць некаторы час (*гл.* скалоць[2]).

**ПАСКО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Скапаць усё, многае. *П. купіны.*

**ПАСКО́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* **1.** Стаць больш хуткім. *Рух поезда паскорыўся.* **2.** Наступіць хутчэй, чым думалася. *Зварот мой паскорыўся.* ‖ *незак.* **паскара́цца**, -а́ецца *і* **паско́рвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **паскарэ́нне**, -я, *н.*

**ПАСКО́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* **1.** Зрабіць больш хуткім. *П. крок. П. апрацоўку дэталей.* **2.** Наблізіць надыход чаго-н. *П. ад'езд.* ‖ *незак.* **паскара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **паскарэ́нне**, -я, *н.*

**ПАСКО́ЧВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Скаціцца — пра ўсё, многае ці ўсіх, многіх.

**ПАСКО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак. каго-што.* Скаціць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. бярвенне ў кучу.*

**ПАСКО́ШВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак. каго-што.* Скасіць усё, многае (*гл.* скасіць[1]).

**ПАСКРУ́ЧВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Скруціцца — пра ўсё, многае.

**ПАСКРУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Скруціць усё, многае.

**ПАСКРЭ́БКІ**, -аў, (разм.). Тое, што і *выскрабкі.*

**ПАСКРЭ́БЦІ**, -рабу́, -рабе́ш, -рабе́; -рабём, -рабяце́, -рабу́ць; -ро́б, -рэ́бла і -рабла́; -рабі́; -рэ́бены; *зак.* **1.** *што.* Аскрэбці ўсё, многае. *П. ўсю моркву.* **2.** *каго-што* і *без дап.* Скрэбці некаторы час.

**ПАСКУ́БВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што.* Скубці час ад часу. *П. траву.*

**ПАСКУ́БЦІ**, -бу́, -бе́ш, -бе́; -бём, -бяце́, -бу́ць; -ку́б, -ку́бла; -бі́; -ку́блены; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Правесці некаторы час, скубучы што-н. *П. травы.* **2.** *што.* Тое, што і *выскубці. П. траву.* **3.** *перан., каго-што.* Нанесці ўрон, шкоду. *Ні за што паскублі чалавека.*

**ПАСКУ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* (разм., груб.). **1.** Пакідаць пасля сябе бруд, гадзіць. *Добрая птушка ў сваё гняздо не паскудзіць* (прыказка). **2.** *што.* Брудзіць, пэцкаць, псаваць. *П. сцены.* **3.** *перан.* Рабіць гадасці, шкодзіць. ‖ *зак.* **напаску́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць (да 1 і 3 знач.).

**ПАСКУ́ДНЫ**, -ая, -ае (разм., груб.). Брыдкі, агідны. *Паскудныя словы. П. чалавек.* ‖ *наз.* **паску́дства**, -а, *н. і* **паску́днасць**, -і, *ж.*

**ПАСКУПІ́ЦЦА** *гл.* скупіцца.

**ПАСКУ́РЧВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Скурчыцца — пра ўсіх, многіх ці ўсё, многае.

**ПАСКУ́РЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Скурчыць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАСКУ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Скусіць усё, многае.

**ПАСЛАБЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** Стаць слабейшым. *П. здароўем.* **2.** Аслабнуць — пра ўсіх, многіх.

**ПАСЛА́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., што.* **1.** Аслабіць, зрабіць менш тугім, нацягнутым, закручаным. *П. гайку. П. вяроўку.* **2.** Зменшыць сілу, напружанасць чаго-н. *П. увагу да чаго-н. П. націск.* ‖ *незак.* **паслабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **паслабле́нне**, -я, *н.*

**ПАСЛАБЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* паслабіць. **2.** Залішняя паблажлівасць, зніжэнне патрабавальнасці. *Ніякіх паслабленняў гультаям.*

**ПАСЛА́БНУЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -не; -нем, -неце, -нуць; пасла́б, -бла; *зак.* Аслабнуць — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае. *Вяроўкі паслаблі.*

**ПАСЛАНЕ́Ц**, -нца́, *мн.* -нцы́, -нцо́ў, *м.* Асоба, пасланая куды-н. з якім-н. даручэннем, заданнем.

**ПАСЛА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Пісьмовы зварот дзяржаўнага дзеяча (ці грамад-

скай арганізацыі) да другога (ці да другой арганізацыі) па якім-н. важным дзяржаўным, палітычным пытанні. *П. прэзідэнта кангрэсу.* **2.** Увогуле — пісьмо, пісьмовы зварот (уст. і іран.). *Страснае п.* **3.** Літаратурны твор у форме звароту да каго-н.

**ПАСЛА́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Дыпламатычны прадстаўнік, рангам ніжэйшы за пасла. ‖ *прым.* **пасла́нніцкі**, -ая, -ае.

**ПАСЛА́ЦЦА** *гл.* слацца.

**ПАСЛА́ЦЬ**[1], пашлю, пашлеш, пашле; пашлём, пашляце, пашлюць; пашлі; пасланы; *зак.* **1.** *каго (што).* Накіраваць з якім-н. даручэннем, куды-н. *П. дыялектолагаў у экспедыцыю. П. па доктара.* **2.** *каго-што.* Адправіць для дастаўкі. *П. бандэроль па пошце.* **3.** *што.* Перадаць, выказаць жэстам, словамі, пісьмова свае адносіны, пачуцці да каго-н. (разм.). *П. паветраны пацалунак. П. прывітанне.* **4.** *што.* Кінуць, накіраваць. *П. мяч у сетку.* **5.** *што.* Пасунуць, накіраваць (спец.). *П. корпус улева* (пра рух цела). ‖ *незак.* **пасыла́ць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пасы́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* (да 1, 2 і 5 знач.) *і* **пасыла́нне**, -я, *н.* (да 1—4 знач.).

**ПАСЛА́ЦЬ**[2] *гл.* слаць[2].

**ПАСЛЕ́Д**, -у, *ДМ* -дзе, *м.* Абалонка плода ў цяжарных. ‖ *прым.* **пасле́давы**, -ая, -ае.

**ПАСЛЕ́ДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* (разм.). **1.** Апошняе дзіця ў сям'і. **2.** *мн.* Рэшткі чаго-н. *Даесці паследкі.* ◊ **На (самы) паследак** — у апошнюю чаргу, на самы канец.

**ПАСЛЕ́ПНУЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -не; -нем, -неце, -нуць; пасле́п, -пла; *зак.* Аслепнуць — пра ўсіх, многіх.

**ПАСЛЁН**, -у, *м.* Родавая назва некаторых раслін (напр., бульбы, памідораў, а таксама тытуню, блёкату і інш.), якія ўтвараюць асобнае сямейства. ‖ *прым.* **паслёнавы**, -ая, -ае. *Сямейства паслёнавых* (наз.).

**ПАСЛІЗНУ́ЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нёмся, -няцеся, -нуцца; -ніся; *зак.* Спатыкнуцца на слізкім месцы. *П. на лёдзе.*

**ПАСЛІ́НІЦЬ** *гл.* слініць.

**ПАСЛУ́ГА**, -і, *ДМ* -лузе, *мн.* -і, -луг, *ж.* **1.** Дзеянне, якое прыносіць карысць, дапамогу іншаму. *Сяброўская п. Прапанаваць свае паслугі. Мядзведжая п.* (няўмелая дапамога, паслуга, якая прыносіць толькі шкоду). **2.** *мн.* Бытавыя выгоды, якія даюцца каму-н. *Усе віды паслуг. Бюро добрых паслуг. Камунальныя паслугі* (водаправод, асвятленне і пад.).

**ПАСЛУГАВА́ЦЬ** *гл.* слугаваць.

**ПАСЛУГА́Ч**, -а, *мн.* -ы, -оў, *м.* (пагард.). Той, хто імкнецца выслужыцца перад кім-н., саўдзельнік у чым-н. ‖ *ж.* **паслуга́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ПАСЛУ́ЖЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *услужлівы.* ‖ *наз.* **паслу́жлівасць**, -і, *ж.*

**ПАСЛУЖНЫ́**, -ая, -ое. У выразе: **паслужны спіс** — дакумент са звесткамі аб праходжанні службы.

**ПАСЛУЖЫ́ЦЬ**, -ужу, -ужыш, -ужыць; *зак.* **1.** *гл.* служыць. **2.** Пабыць некаторы час, служачы дзе-н. *Паслужыў тры гады ў ваенна-марскім флоце.*

**ПАСЛУ́ХАЦЦА** *гл.* слухацца.

**ПАСЛУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* **1.** *гл.* слухаць. **2.** Правесці некаторы час, слухаючы. *П. лекцыю. П. музыку. Паслухайце, што я вам скажу.*

**ПАСЛУХМЯ́НЫ**, -ая, -ае. Такі, які слухаецца, пакорны. *П. хлопчык.* ‖ *наз.* **паслухмя́насць**, -і, *ж.*

**ПАСЛУ́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прыслужнік у манастыры, які рыхтуецца стаць манахам. ‖ *ж.* **паслу́шніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **паслу́шніцкі**, -ая, -ае.

**ПАСЛУШЭ́НСТВА**, -а, *н.* Беспярэчнае падпарадкаванне каму-н.; пакорнасць. *Трымаць дзяцей у паслушэнстве.*

**ПАСЛЯ́.** **1.** *прысл.* Праз некаторы час, потым. *Гэта можна зрабіць п.* **2.** *прыназ. з Р.* Па заканчэнні, здзяйсненні чаго-н., адыходзе каго-н. *Сустрэнемся п. работы. П. Новага года. Як мне не крыўдзіцца на яго п. такіх слоў. Спадчына п. бацькоў.* ◊ **Пасля таго як** (злуч. падпарадкавальны) — ужыв. ў дададаных сказах часу. *Пасля таго як дзеці пад'елі, выхавальніцы павялі іх у батанічны сад.*

**ПАСЛЯ...**, *прыстаўка.* Утварае прыметнікі са знач.: які адбываецца, надыходзіць пасля чаго-н., напр.: *пасляабедзенны, пасляродавы, пасляледавіковы.*

**ПАСЛЯВАЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца, існуе пасля вайны. *П. перыяд.*

**ПАСЛЯДО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які прытрымліваецца якога-н. вучэння і кіруецца ім у сваёй дзейнасці. *П. Скарыны.* ‖ *ж.* **паслядо́ўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАСЛЯДО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які беспярыпынна ідзе адзін за адным. *Паслядоўныя этапы работы.* **2.** Лагічна абгрунтаваны, які заканамерна вынікае з чаго-н. *П. вывад. П. ход думак. Разважаць паслядоўна* (прысл.). ‖ *наз.* **паслядо́ўнасць**, -і, *ж.*

**ПАСЛЯЗА́ЎТРА**, *прысл.* На наступны дзень пасля заўтрашняга. *Паедзем п.* ‖ *прым.* **паслязаўтрашні**, -яя, -яе.

**ПАСЛЯСЛО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Заключная заўвага або заключны артыкул да твора.

**ПА́СМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Некалькі нітак або валокнаў, складзеных удоўж. *П. лёну, канапель.* **2.** Адна з частак, на якія дзеліцца маток пражы (спец.). **3.** Пучок валасоў, прылеглых адзін да аднаго або зліплых.

**ПАСМА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак.* **1.** *што.* Прыгатаваць смажаннем. **2.** *каго-што.* Сасмажыць усё, многае або ўсіх, многіх. **3.** *што і без дап.* Смажыць некаторы час.

**ПАСМЕ́ЙВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Смяяцца або насміхацца злёгку, трохі. *Сядзіць і пасмейваецца.*

**ПАСМЕ́ЦЬ** *гл.* смець.

**ПАСМЕ́ШЫШЧА**, -а, *н.* **1.** Той, з каго (або тое, з чаго) смяюцца, кпяць. *Быць усеагульным пасмешышчам.* **2.** Здзек, асмянне. *Выставіць каго-н. на п.*

**ПАСМІХА́ЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Тое, што і *пасмейвацца.*

**ПАСМУГЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў смуглым, смуглейшым. *П. твар.*

**ПАСМУГЛЕ́ЦЬ** *гл.* смуглець.

**ПАСМЯЛЕ́ЦЬ** *гл.* смялець.

**ПАСМЯРО́ТНЫ**, -ая, -ае. Які ажыццёўлены або ўзнік пасля смерці (пра што-н., што адносіцца да дзейнасці нябожчыка). *Пасмяротнае выданне твораў пісьменніка. Узнагароджаны пасмяротна* (прысл.).

**ПАСНЕ́ДАЦЬ** *гл.* снедаць.

**ПАСНУ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -не; -нём, -няце, -нуць; *зак.* Заснуць — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае. *Дзеці паснулі.*

**ПАСО́Л**, -сла, *мн.* -слы, -слоў, *м.* Дыпламатычны прадстаўнік вышэйшага рангу. *Сустрэча на ўзроўні паслоў.* ‖ *прым.* **пасо́льскі**, -ая, -ае.

**ПАСО́ЛЬСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дыпламатычнае прадстаўніцтва, якое ўзначальваецца паслом, а таксама будынак, у якім знаходзіцца гэта прадстаўніцтва. ‖ *прым.* **пасо́льскі**, -ая, -ае.

**ПАСО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Сапці злёгку, час ад часу. *Дзіця пасопвала ў калысцы.*

**ПАСО́ЎВАЦЦА** *гл.* пасунуцца.

**ПАСО́ЎВАЦЬ** *гл.* пасунуць.

**ПАСО́ЎКА** *гл.* пасаваць[3].

**ПАСО́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаў сухім, страціў вільгаць; які перасох (пра вусны). **2.** Які завяў, засох ад неспрыяльных умоў. *Пасохлая трава.*

**ПАСО́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -охне; -ох, -охла; *зак.* **1.** Стаць сухім, высахнуць. *Бялізна пасохла.* **2.** Засохнуць зусім — пра ўсё, многае. *Кветкі на клумбах пасохлі.*

**ПАСПАВЯДА́ЦЬ** *гл.* спавядаць.

**ПАСПАДЗЯВА́ЦЦА** *гл.* спадзявацца.

**ПАСПАКАЙНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў спакайнейшым. *Паспакайнелыя пасля сумятні людзі.*

**ПАСПАКАЙНЕ́ЦЬ** *гл.* спакайнець.

**ПАСПАРТУ́**, *нескл., н.* Спецыяльная кардонная рамка ці падклейка пад фатаграфічны здымак, гравюру.

**ПАСПАЎЗА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ае; -аем, -аеце, -аюць; *зак.* Спаўзці — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае.

**ПАСПА́ЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -пім, -піце, -пяць; -пі; *зак.* Правесці некаторы час сплючы, заснуць на кароткі час. *Пасплю з гадзінку.*

**ПАСПЕ́ЕЦЦА**, *безас., зак.* (разм.). Няма куды спяшацца, можна паспець. *З паездкай паспеецца, пачакайце.*

**ПАСПЕ́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *зак.* **1.** *гл.* спець[2]. **2.** Стаць гатовым, прыгатаваным (разм.). *Снеданне паспела* (зварылася). *Глеба паспела* (стала прыгоднай

для чаго-н.). ‖ *незак.* **паспявáць**, -áе (да 2 знач.).

**ПАСПÉЦЬ**[2], -éю, -éеш, -éе; *зак.* Зрабіць што-н., прыбыць куды-н. своечасова, у тэрмін. *П. усё прыгатаваць да прыходу гасцей. П. на цягнік.* ◊ **Не паспеў** (што-н. зрабіць), **як...** — ледзь было што-н. зроблена, ледзь адбылося што-н., як наступіла іншае. *Не паспеў я азірнуцца, як яны ўжо і паехалі.* ‖ *незак.* **паспявáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПАСПÉШЛІВЫ**, -ая, -ае. Схільны спяшацца, хуткі. *П. чалавек. Паспешлівыя меркаванні.* ‖ *наз.* **паспéшлівасць**, -і, *ж.*

**ПАСПІЛÓЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Спілаваць усё, многае. *П. дрэвы.*

**ПАСПІ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Спісаць усё, многае. *П. ламаныя крэслы. Паспісвалі ўсе сцены крэйдай.*

**ПАСПІХÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны *і* **ПАСПІ́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Сапхнуць усё, многае ці ўсіх, многіх.

**ПАСПЛАЎЛЯ́ЦЬ**[1], -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., што.* Сплавіць усё, многае (*гл.* сплавіць[1]).

**ПАСПЛАЎЛЯ́ЦЬ**[2], -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., каго-што.* Сплавіць усё, многае або ўсіх, многіх (*гл.* сплавіць[2]).

**ПАСПЛЫВÁЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -áе; -áем, -áеце, -áюць; *зак.* Сплысці — пра ўсё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАСПЛЮ́ШЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Сплюшчыць усё, многае (*гл.* сплю́шчыць[2]).

**ПАСПЛЯТÁЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *зак.* Сплесціся — пра ўсё, многае.

**ПАСПЛЯТÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *зак., што.* Сплесці ўсё, многае.

**ПАСПÓЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго (што).* Прывучыць да п'янства. *Паспойвалі хлопцаў сябры.*

**ПАСПÓРВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Адпароць, аддзяліць усё, многае. *П. нашыўкі.* **2.** Палкай, шастом скінуць усё, многае. *П. гнёзды.*

**ПАСПРАБАВÁЦЬ** *гл.* спрабаваць.

**ПАСПРАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., што.* Справіць усё, многае або ўсім, многім. *П. касцюмы.*

**ПАСПРАЧÁЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* **1.** *гл.* спрачацца. **2.** Уступіць у спрэчку, у спаборніцтва. *П. ў майстэрстве.* **3.** Правесці які-н. час у спрэчцы. *Яна любіць п.*

**ПАСПРЫЯ́ЦЬ** *гл.* спрыяць.

**ПАСПУСКÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што.* Спусціць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. сабак з прывязі. П. ваду ў канаву.*

**ПАСПЫТÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *зак., што* і *чаго.* **1.** Пакаштаваць, паспрабаваць на смак. *П. кураціны.* **2.** *перан.* Зведаць у жыцці, на практыцы (разм.). *П. на сваёй скуры што-н.* (пераканацца ў чым-н. на сваім вопыце; разм.).

**ПАСПЯВÁЦЬ**[1], -áю, -áеш, -áе; *зак., што* і *без дап.* Правесці які-н. час спяваючы. *П. песні.*

**ПАСПЯВÁЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -áе; *незак.* **1.** *гл.* паспець[1]. **2.** Тое, што і *спець*[1] (разм.). *Збожжавыя паспяваюць да жніўня.*

**ПАСПЯВÁЦЬ**[3], -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *гл.* паспець[2]. **2.** Добра вучыцца, паспяхова займацца вучэбнымі прадметамі. *Не паспявае па матэматыцы.*

**ПАСПЯХÓВАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* паспяховы. **2.** Ступень засваення вучнямі ведаў. *Павысіць п. Высокая п. навучэнцаў.*

**ПАСПЯХÓВЫ**, -ая, -ае. Які заключае ў сабе поспех, удалы. *Паспяховае асваенне тэхнікі. Паспяхова* (прысл.) *выканаць абавязацельствы.* ‖ *наз.* **паспяхóвасць**, -і, *ж.*

**ПАСПЯШÁЦЦА** *гл.* спяшацца.

**ПАСРЭ́ДНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* пасрэдны. **2.** Пасрэдны, бяздарны чалавек.

**ПАСРЭ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба ці арганізацыя, пры ўдзеле якіх вядуцца перагаворы паміж бакамі. ‖ *ж.* **пасрэ́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **пасрэ́дніцкі**, -ая, -ае.

**ПАСРЭ́ДНІЦТВА**, -ы, *н.* Садзейнічанне пагадненню, здзелцы паміж бакамі. *П. пры куплі.* ‖ *прым.* **пасрэ́дніцкі**, -ая, -ае.

**ПАСРЭ́ДНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Займацца пасрэдніцтвам, быць пасрэднікам. *П. у канфлікце.*

**ПАСРЭ́ДНЫ**, -ая, -ае. Сярэдні па якасці, звычайны. *П. спецыяліст. П. адказ на экзамене.* ‖ *наз.* **пасрэ́днасць**, -і, *ж.*

**ПАССÁДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго.* Ссадзіць усіх, многіх.

**ПАССÓЎВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Ссунуцца — пра ўсё, многае ці пра ўсіх, многіх. *Снапы пассоўваліся з воза.*

**ПАССÓЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Ссунуць усё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАССÝКВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Ссукаць усё, многае.

**ПАССЫЛÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго (што).* Саслаць усіх, многіх.

**ПАССЫПÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Ссыпаць усё, многае. *П. збожжа ў засекі.*

**ПАССЯДÁЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *зак.* Ссесціся — пра ўсё, многае.

**ПАССЯКÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Ссячы ўсё, многае.

**ПÁСТА**, -ы, *ДМ* -сце, *ж.* Назва розных касметычных, кулінарных і інш. рэчываў у выглядзе цестападобнай масы. *Зубная п. Таматная п.*

**ПАСТÁВА**, -ы, *мн.* -ы, -тáў, *ж.* **1.** Знешнасць, манера трымаць сябе (пераважна пра постаць, склад фігуры). *Стройная п.* **2.** Пастаноўка, становішча якой-н. часткі цела. *П. рукі пры стральбе. Правільная п. ног у танцы.*

**ПАСТÁВІЦЦА** *гл.* ставіцца.

**ПАСТÁВІЦЬ**[1], -тáўлю, -тáвіш, -тáвіць; -тáўлены; *зак., што.* Ажыццявіць пастаўку чаго-н. *П. новае абсталяванне для майстэрняў. П. паліва.* ‖ *незак.* **пастаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПАСТÁВІЦЬ**[2] *гл.* ставіць.

**ПАСТАВЫ́**, -áя, -óе. **1.** *гл.* пост[1]. **2.** Які стаіць на пасту[1] (у 2 знач.), на ахове чаго-н. *П. міліцыянер. Выставіць паставых* (наз.).

**ПАСТАЛÉЛЫ**, -ая, -ае. Які пасталеў, зрабіўся сталым. *Вярнуцца з арміі пасталелым.*

**ПАСТАЛÉЦЬ** *гл.* сталець.

**ПАСТАМÉНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аснова, фундамент помніка, калоны, статуі. *Гранітны п.*

**ПАСТАНАВІ́ЦЬ**, -наўлю́, -нóвіш, -нóвіць; -нóўлены; *зак., з інф.* Прыняць якую-н. пастанову. *П. адзінагалосна.* ‖ *незак.* **пастанаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПАСТАНÓВА**, -ы, *мн.* -ы, -нóў, *ж.* **1.** Калектыўнае рашэнне або ўрадавае распараджэнне. *П. педагагічнага савета.* **2.** Адна з форм судовага рашэння. *П. суда. Прыватная п.*

**ПАСТАНÓЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** *гл.* ставіць. **2.** Становішча, манера трымаць якую-н. частку цела. *Правільная п. ног.* **3.** Спосаб рабіць што-н., арганізацыя чаго-н. *П. музычнай адукацыі ў школах.* **4.** *Р мн.* -нóвак. Тое, што і *спектакль. Тэатральная п.* ‖ *прым.* **пастанóвачны**, -ая, -ае (да 4 знач.).

**ПАСТАНÓЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік, які кіруе пастаноўкай спектакля, відовішча, рэжысёр.

**ПÁСТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пратэстанцкі святар. ‖ *прым.* **пáстарскі**, -ая, -ае.

**ПАСТАРÁЛЬ**, -і, *ж.* Жанр у літаратуры і мастацтве Еўропы 14—18 стст., у якім ідылічна паказваецца жыццё пастухоў і пастушак на ўлонні прыроды. ‖ *прым.* **пастарáльны**, -ая, -ае.

**ПАСТАРÁЦЦА** *гл.* старацца.

**ПАСТАРНÁК**, -у, *м.* Агародная і дзікарослая расліна з прыемным пахам, караняплод з жоўтымі кветкамі, ужыв. як прыправа.

**ПАСТАРÓНКАВЫ**, -ая, -ае. Які робіцца па старонках. *П. падлік.*

**ПАСТАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які пастарэў, састарэў. *П. чалавек.*

**ПАСТАРЭ́ЦЬ** *гл.* старэць.

**ПАСТÁЎ**[1], -тáва, *мн.* -тáвы, -тáваў, *м.* Пара млынавых камянёў. *Млын на два паставы.* ‖ *прым.* **пастáўны**, -ая, -ае.

**ПАСТÁЎ**[2], -тáва, *мн.* -тáвы, -тáваў, *м.* Сувой палатна. *У куфры стаялі чатыры паставы палатна.* ‖ *прым.* **пастáўны**, -ая, -ае.

**ПАСТÁЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -тáвак, *ж.* Дастаўка, забеспячэнне прадукцыяй па спецыяльным дагаворы. *П. сыравіны заводу.*

**ПАСТАЎЛЯ́ЦЬ**[1] *гл.* паставіць[1].

**ПАСТАЎЛЯ́ЦЬ**[2], -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Паставіць усё, многае. *П. снапы. П. новыя хаты.*

**ПАСТАЎНІ́К**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* Загарадка для жывёлы ў полі.

**ПАСТАЎШЧЫ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Асоба, арганізацыя, якія пастаўляюць матэрыялы, тавары. *Завод-п.*

**ПАСТАЯ́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* (разм.). Жыхар, асоба, якая часова жыве ў нанятай кватэры. ‖ *ж.* **пастая́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак.

**ПАСТАЯ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Нязменны і аднолькавы заўсёды, бесперапынны. *Прырода на Зямлі знаходзіцца ў пастаянным развіцці. Пастаянная велічыня* (у матэматыцы). *П. ток* (у адрозненне ад пераменнага). *Пастаянная армія* (армія мірнага часу). *П. капітал* (частка капіталу, што затрачваецца на сродкі вытворчасці і застаецца нязменнай у працэсе вытворчасці). *П. заказчык у атэлье.* **2.** Разлічаны на доўгі тэрмін, не часовы. *Пастаянная работа. П. жыхар.* **3.** Не зменлівы, цвёрды. *П. погляд на рэчы.*

**ПАСТАЯ́НСТВА**, -а, *н.* **1.** Нязменнасць у якіх-н. адносінах якіх-н. уласцівасцей, якасцей, элементаў (спец.). *Закон пастаянства саставу.* **2.** Адсутнасць зменлівасці, цвёрдасць у чым-н. *П. прывычак.*

**ПАСТАЯ́ЦЬ**, -таю́, -таíш, -таíць; -таíм, -таіцé, -тая́ць; -тóй; *зак.* **1.** *гл.* стаяць. **2.** Стаяць (у 1, 2, 4, 6, 8 і 9 знач.) некаторы час. **3.** *заг.* **пастóй (це)**. Ужыв. ў знач.: пачакай (це), не спяшайся (спяшайцеся), а таксама як выражэнне здзіўлення, нязгоды, прыпамінання чаго-н. (разм.). *Пастой, давай пагаворым.*

**ПА́СТВА**, -ы, *ж., зб.* (уст.). Вернікі, прыхаджане якой-н. царквы.

**ПА́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Прыстасаванне для лоўлі звяроў. *Паставіць пастку на шашка.* **2.** Нечаканая небяспека, засада. *Унікнуць пасткі на дарозе.* **3.** *перан.* Хітры манеўр для заманьвання праціўніка ў небяспечнае становішча. *Прыдумаць пастку для ворага.* ‖ *прым.* **па́сткавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПАСТÓЙ**, -ю, *м.* Стаянка войск, ваенных на прыватных кватэрах. *Развесці салдат на п.*

**ПАСТÓПТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Стаптаць усё, многае. *Дзеці пастоптвалі абутак.*

**ПАСТÓЧВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Зрабіцца тонкім ад тачэння — пра ўсё, многае.

**ПАСТÓЧВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Стачыць[1] усё, многае. *П. нажы.*

**ПАСТÓЧВАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Стачыць[3] усё, многае.

**ПАСТРАÉННЕ** *гл.* строіць[2].

**ПАСТРАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак.* **1.** Правесці некаторы час, займаючыся стральбой. *П. у цэль.* **2.** *каго.* Расстраляць, забіць усіх, многіх. *Карнікі пастралялі людзей.* **3.** *што.* Расходаваць пры стральбе. *П. усе патроны.*

**ПАСТРАСА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны *і* **ПАСТРЭ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Стрэсці ўсё, многае.

**ПАСТРÓІЦЦА** *гл.* строіцца[2].

**ПАСТРÓІЦЬ** *гл.* строіць[2].

**ПАСТРÓНАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Рэмень (вяроўка), які злучае ворчык з хамутом пры запраганні каня ў плуг, барану. ‖ *прым.* **пастрóнкавы**, -ая, -ае.

**ПАСТРЫ́ГЧЫ**, -рыгу́, -рыжэ́ш, -рыжэ́; -рыжóм, -рыжацé, -рыгу́ць; -ры́г, -ла; -рыжы́; -ры́жаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Падраўняць, падрэзаць ці абрэзаць валасы, воўну (нажніцамі, машынкай). *П. дзіця. П. авечку.* **2.** *каго (што).* Прыняць пострыг, стаць манахам (манашкай). *П. ў манахі.* ‖ *незак.* **пастрыга́ць**, -áю, -áеш, -áе (да 2 знач.). ‖ *наз.* **пастрыжэ́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ПАСТРЫНÓЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго (што).* Стрыножыць усіх, многіх. *П. коней.*

**ПАСТРЭ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Страляць (у 1—3 знач.) зрэдку, час ад часу. *П. з кулямёта. Пастрэльвае ў вуху.*

**ПАСТРЭ́СВАЦЬ** *гл.* пастрасаць.

**ПАСТСКРЫ́ПТУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Прыпіска ў пісьме пасля подпісу, якая абазначаецца літарамі PS [ад лацінск. postscriptum — «пасля напісанага»].

**ПАСТУ́КАЦЦА** *гл.* стукацца.

**ПАСТУЛА́Т**, -а, *М* -лáце, *мн.* -ы, -аў, *м.* У матэматыцы, логіцы: зыходнае палажэнне, дапушчэнне, якое прымаецца без доказу.

**ПАСТУЛІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.* (кніжн.). Выказаць (выказваць) што-н. у якасці пастулата. *П. якое-н. палажэнне.*

**ПАСТУПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Накіраваны ўперад. *П. рух.* ‖ *наз.* **паступа́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАСТУПІ́ЦЦА**, -уплю́ся, -у́пішся, -у́піцца; *зак., чым.* Добраахвотна ўступаючы, адмовіцца ад чаго-н. *П. асабістымі інтарэсамі.* ‖ *незак.* **паступа́цца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ПАСТУПІ́ЦЬ**, -уплю́, -у́піш, -у́піць; *зак.* **1.** Павесці сябе пэўным чынам, зрабіць які-н. учынак. *П. высакародна.* **2.** Залічыцца куды-н. *П. ва ўніверсітэт.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паслаць па назначэнні (пра тое, што паведамляецца, перадаецца); быць дастаўленым куды-н.. *Кніга паступіла ў продаж. П. у шпіталь на лячэнне.* ‖ *незак.* **паступа́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **паступлéнне**, -я, *н.* (да 2 і 3 знач.).

**ПАСТУПЛÉННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* паступіць. **2.** Тое, што паступіла (у 3 знач.) куды-н. (грашовая сума, матэрыялы, якія паступілі куды-н.; афіц.). *Грашовыя паступленні. Выстаўка новых паступленняў у бібліятэцы.*

**ПАСТУПÓВЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца не адразу, без рэзкіх змен. *П. пераход да чаго-н. Ажыццяўляць што-н. паступова* (прысл.). ‖ *наз.* **паступóвасць**, -і, *ж.*

**ПАСТУ́Х**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Чалавек, які пасе статак. ‖ *памянш.-ласк.* **пастушóк**, -шкá, *мн.* -шкí, -шкóў, *м.* ‖ *ж.* **пасту́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак. ‖ *прым.* **пастухóўскі**, -ая, -ае.

**ПАСТФА́КТУМ**, *прысл.* (кніжн.). Пасля таго, як што-н. ужо зроблена, адбылося. *Паведаміць пра што-н. п.*

**ПА́СТЫР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Святар як кіраўнік паствы. ‖ *прым.* **па́стырскі**, -ая, -ае.

**ПАСТЫ́Р**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* (разм.). Тое, што і *пастух.* ‖ *прым.* **пасты́рскі**, -ая, -ае.

**ПАСТЭ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Мяккія каляровыя алоўкі для жывапісу, а таксама выкананы імі рысунак. ‖ *прым.* **пастэ́льны**, -ая, -ае. *Пастэльныя тоны* (мяккія, няяркія).

**ПАСТЭРЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Апрацаваць (апрацоўваць) харчовыя прадукты награваннем (не вышэй за 100 °С) з мэтай засцярогі ад развіцця ў іх мікробаў. *Пастэрызаванае малако.* ‖ *наз.* **пастэрыза́цыя**, -ыі, *ж.*

**ПАСУ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж., зб.* Тое, што і *посуд.* ‖ *прым.* **пасу́дны**, -ая, -ае.

**ПАСУ́ДЗІНА**, -ы, *мн.* -ы, -дзін, *ж.* **1.** Адзін прадмет посуду. **2.** *перан.* Пра судна, лодку (разм.). *Пераплываць раку на старой пасудзіне.*

**ПАСУДЗІ́ЦЬ**, -уджу́, -у́дзіш, -у́дзіць; *зак.* **1.** *каго.* Засудзіць усіх, многіх. *Усіх злачынцаў пасудзілі.* **2.** *заг.* **пасудзí(це).** Ужыв. ў знач.: падумай(це), уяві(це) сабе. *Пасудзі сабе, ці можна так рабіць.* **3.** Пагаварыць, папляткарыць некаторы час (разм.).

**ПАСУКА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе *і* -сучу́, -су́чаш, -су́ча; -áны *і* -у́каны; *зак., што.* **1.** Ссукаць, перасукаць усё, многае. *П. усю пражу.* **2.** *і без дап.* Сукаць некаторы час.

**ПАСУ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Перамясціцца, перасунуцца крыху. *П. наперад. Пасунься, я сяду.* **2.** *перан.* Пайсці далей, наперад у якіх-н. адносінах. *Будаўніцтва пасунулася.* **3.** Тое, што і сунуцца (у 1 знач.). **4.** Павольна пайсці, паплесціся. *Пасунуўся дамоў.* ‖ *незак.* **пасóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 2 знач.).

**ПАСУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -су́нь; *зак.* **1.** *каго-што.* Злёгку перасунуць, перамясціць. *П. стол да сцяны.* **2.** *перан., што.* Прасунуць наперад. *П. сваю працу.* ‖ *незак.* **пасóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАСУР'ЁЗНЕЦЬ** *гл.* сур'ёзнець.

**ПАСУРÓВЕЦЬ** *гл.* суровець.

**ПАСУ́ХУ**, *прысл.* Па сухім месцы, сухім шляхам; посуху. *Ісці п.*

**ПА́СХА**, -і, *ж.* Салодкая ежа з тварагу са сметанковым маслам, разынкамі, якая гатуецца ў спецыяльнай форме (у выглядзе чатырохвугольнай піраміды) да Вялікадня. *Тваражная п.*

**ПАСХІЛЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -я́ецца; -я́емся, -я́ецеся, -я́юцца; *зак.* Схіліцца — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае. *Вучні пасхіляліся над сшыткамі.*

**ПАСХІЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Схіліць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАСХО́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -дзіцца; -дзімся, -дзіцеся, -дзяцца; *зак.* Сысціся — пра ўсіх, многіх.

**ПАСХО́ДЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -дзіць; -дзім, -дзіце, -дзяць; *зак.* Сысці — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае.

**ПАСЦЕ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Месца для спання з пасланымі на ім спальнымі рэчамі (бялізнай, коўдрай і пад.). *Паслаць п.* ‖ *прым.* **пасце́льны**, -ая, -ае. *Пасцельныя рэчы. П. рэжым* (пры хваробе — неабходнасць ляжаць у пасцелі).

**ПА́СЦІ**, паду́, падзе́ш, падзе́; падзём, падзяце́, паду́ць; паў, па́ла; падзі́; *зак.* **1.** *гл.* падаць. **2.** Загінуць, быць забітым (высок.). *П. ў бітве за Радзіму. П. ахвярай чаго-н.* (загінуць з-за чаго-н.). **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Быць пераможаным, скарыцца (пра крэпасць, уладу; высок.). *Крэпасць пала. Стары лад паў.* **4.** *перан.* Маральна апусціцца, стаць нікчэмным. *Нізка п.* ◊ **Ні села ні пала** (разм.) — нечакана, без прычыны. **Пасці духам** — страціць надзею, занудзіцца. ‖ *наз.* **падзе́нне**, -я, *н.* (да 3 і 4 знач.).

**ПАСЦІЖО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Спецыяліст, які вырабляе парыкі, а ў тэатральных майстэрнях таксама накладныя вусы, бароды, бакенбарды. ‖ *прым.* **пасціжо́рскі**, -ая, -ае.

**ПАСЦІЖО́РНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае адносіны да работы пасціжораў. *Пасціжорная майстэрня. Пасціжорныя работы.*

**ПАСЦІЛА́**, -ы́, *ж.* Кандытарскі выраб, прыгатаваны збіваннем фруктова-ягаднага пюрэ з цукрам і яечнымі бялкамі. *Яблычная п.* ‖ *прым.* **пасці́льны**, -ая, -ае.

**ПАСЦІРА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *зак.* Сцерціся — пра ўсё, многае.

**ПАСЦІРА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Сцерці ўсё, многае. *П. пыл з мэблі.*

**ПАСЦІСКА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што.* Сціснуць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. бярвенне дротам.*

**ПАСЦІХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -áе; -áем, -áеце, -áюць; *зак.* Сціхнуць — пра ўсё, многае або пра ўсіх, многіх. *Пасціхалі галасы.*

**ПАСЦІ́ЦЬ**, пашчу́, по́сціш, по́сціць; *незак.* Прытрымлівацца посту[1], не есці мясной або малочнай стравы.

**ПАСЦЭ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Сцадзіць усё, многае.

**ПАСЦЯ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае *і* **ПАСЦЯГА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *зак., каго-што.* Сцягнуць усё, многае ці ўсіх, многіх. *П. галлё ў кучы.*

**ПАСЦЯКА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áе; *зак.* Сцячы — пра ўсё, многае.

**ПАСЧАПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Тое, што і *пасчэплівацъ.*

**ПАСЧЫШЧА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Счысціць усё, многае. *П. снег з дахаў.*

**ПАСЧЭ́ПЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Счапіць усё, многае. *П. вагоны.*

**ПАСЧЭ́СВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Счасаць усё, многае (*гл.* счасаць[1]).

**ПАСЧЭ́СВАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Счасаць усё, многае (*гл.* счасаць[2]).

**ПАСШЫВА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Сшыць усё, многае; сшыць у многіх месцах.

**ПАСЫЛА́ЦЬ** *гл.* паслаць[1].

**ПАСЫ́ЛКА**[1], -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** *гл.* паслаць[1]. **2.** Запакаваная рэч (рэчы), перасланая (-ыя) каму-н. па пошце або кім-н. *Паштовая п. Прывёз вам пасылку ад родных.* ◊ **Быць на пасылках** *у каго* (разм.) — пастаянна выконваць чые-н. дробныя даручэнні. ‖ *памянш.* **пасы́лачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 2 знач.; разм.). ‖ *прым.* **пасы́лачны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Пасылачная квітанцыя.*

**ПАСЫ́ЛКА**[2], -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* У логіцы: суджэнне, якое служыць асновай для вываду. *Правільная п.*

**ПАСЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для пасылкі куды-н. з даручэннямі. *Пасыльная машына. Выклікаць каго-н. праз пасыльнага* (наз.).

**ПА́СЫНАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* **1.** Няродны сын для мужа ці жонкі ў сям'і. *Адносіцца да каго-, чаго-н. як да пасынка* (перан.: нядобразычліва, абыякава). **2.** Бакавы парастак расліны (спец.). ‖ *прым.* **па́сынкавы**, -ая, -ае.

**ПАСЫ́ПАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -плецца; *зак.* Пачаць сыпацца. *Пасыпаўся пясок. Пасыпаліся жарты* (перан.).

**ПАСЫ́ПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; -паны; *зак., што.* Пакрыць чым-н. сыпкім. *П. падлогу апілкамі. П. хлеб соллю.* ‖ *незак.* **пасыпа́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПАСЫХО́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -дзіцца; -дзімся, -дзіцеся, -дзяцца; *зак.* Сысціся — пра ўсіх, многіх. *На сход пасыходзіліся людзі з розных вёсак.*

**ПАСЫХО́ДЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -дзіць; -дзім, -дзіце, -дзяць; *зак.* Сысці — пра ўсіх, многіх.

**ПАСЫЦЕ́ЦЬ** *гл.* сыцець.

**ПАСЬБА́** *гл.* пасвіць.

**ПАСЬЯ́НС**, -у, *м.* Расклад карт паводле пэўных правіл для забавы ці варажбы. *Раскладваць п.* ‖ *прым.* **пасья́нсны**, -ая, -ае.

**ПАСЯБРАВА́ЦЬ** *гл.* сябраваць.

**ПАСЯГА́ННЕ**, -я, *н.* (кніжн.). Спроба зрабіць замах на каго-, што-н., пазбавіць каго-н. чаго-н. *П. на чужую маёмасць.*

**ПАСЯГНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., на каго-што* (кніжн.). Зрабіць замах на каго-, што-н., пазбавіць каго-н. чаго-н. *П. на свабоду чалавека.* ‖ *незак.* **пасяга́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПАСЯДЖЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Сход членаў якой-н. арганізацыі для абмеркавання чаго-н. *П. верхняй палаты Парламента. Пленарнае п.*

**ПАСЯДЗЕ́ЦЬ**, -сяджу́, -сядзі́ш, -сядзі́ць; -сядзі́м, -седзіце́, -сядзя́ць; -сядзі́; *зак.* Сядзець (у 1—5 знач.) некаторы час. *П. на прызбе. Птушка пасядзела на плоце. П. дома. П. за працай. П. у сяброўкі.*

**ПАСЯЛЕ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* **1.** Той, хто ўпершыню пасяліўся дзе-н. на новым, неабжытым месцы. *Пасяленцы на цалінных землях.* **2.** Той, хто сасланы на пасяленне (у 3 знач.).

**ПАСЯЛЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* сяліць. **2.** Населены пункт, а таксама наогул месца, дзе хто-н. жыве, знаходзіцца. *Паявілася новае п. Бабровыя пасяленні.* **3.** Прымусовае выгнанне на жыхарства ў аддаленую мясцовасць як пакаранне за што-н. *Саслаць на п.*

**ПАСЯЛІ́ЦЦА** *гл.* сяліцца.

**ПАСЯЛІ́ЦЬ**, -сялю́, -се́ліш, -се́ліць; -се́лены; *зак.* **1.** *гл.* сяліць. **2.** *перан., што.* Выклікаць у кім-н. якое-н. пачуццё (кніжн.). *П. нянавісць у кім-н.* ‖ *незак.* **пасяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 2 знач.).

**ПАСЯЛКО́ВЫ** *гл.* пасёлак.

**ПАСЯРО́Д**, *прыназ.* і *прысл.* **1.** *прыназ. з Р.* У сярэдзіне. *Паставіць стол п. кухні.* **2.** *прысл.* У сярэдзіне, у цэнтры акружэння каго-, чаго-н. *Мы селі па краях, а ён п.*

**ПАСЯРЭ́ДЗІНЕ**, *прысл.* і *прыназ. з Р.* У сярэдзіне, на аднолькавай адлегласці ад двух пунктаў, прадметаў. *Стаяць п. П. пакоя стаяў стол.*

**ПАСЯЎНА́Я**, -óй, *ж.* Кампанія па сяўбе сельскагаспадарчых культур. *Пачалася п.*

**ПАСЯЎНЫ́** *гл.* пасеў.

**ПАСЯЧЫ́ *і* ПАСЕ́КЧЫ** -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы́; -се́чаны; *зак., каго-што.* Высечы (высекчы), ссячы ў вялікай колькасці, зусім. *Пасеклі малады лес.*

**ПАСЯЧЫ́СЯ** *гл.* сячыся.

**ПАТ**[1], -а, *М* па́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Становішча ў шахматнай гульні, калі адзін з ігракоў не можа зрабіць ходу, не падставіўшы пад удар свайго караля; партыя лічыцца нічыёй. ‖ *прым.* **па́тавы**, -ая, -ае. *Патавая сітуацыя* (таксама перан.: бязвыхаднае становішча).

**ПАТ**[2], -у, *М* па́це, *м.* Род мармеладу. *Абрыкосавы п.*

**ПАТАГЕ́ННЫ**, -ая, -ае (спец.). Тое, што і *хваробатворны.* ‖ *наз.* **патаге́ннасць**, -і, *ж.*

**ПАТАГО́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выклікае пот. *Прапісаць патагоннае* (наз.). **2.** *перан.* Які вымотвае ўсе сілы, эксплуататарскі. *Патагонная сістэма.*

**ПАТАЕ́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** Скрыты ад іншых; сакрэтны. *Патаемнае месца. Патаемная размова.* **2.** Загадкавы, таямнічы. *У іх дзеяннях было нешта патаемнае.* ‖ *наз.* **патае́мнасць**, -і, *ж.*

**ПАТАЙНЫ́**, -áя, -óе. **1.** Сакрэтны паводле сваёй будовы, скрыты. *П. замок. П. ход.* **2.** Загадкавы, сакрэтны. *Патайныя людзі.*

**ПА́ТАКА**, -і, *ДМ* -тацы, *ж.* Густое салодкае рэчыва, якое атрымліваецца з крухмалу. *Бурачная п.* ‖ *прым.* **па́тачны**, -ая, -ае.

**ПАТАКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каму ў чым* або *чаму* (разм.). Тое, што і *патураць. П. дзецям у свавольствах* або *свавольствам дзяцей.* ‖ *наз.* **пата́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж. Не даваць патачкі каму-н.*

**ПАТАЛАГІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* паталогія. **2.** Хваравіта-ненармальны, рэзка адхілены ад нормы (кніжн.). *Паталагічная з'ява.*

**ПАТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука аб хваробных працэсах, адхіленнях ад нормы ў арганізме. **2.** Хваравітае адхіленне ад нормы. ‖ *прым.* **паталагі́чны**, -ая, -ае. *Паталагічная анатомія* (раздзел медыцыны, які вывучае хваробныя змены ў арганізме шляхам анатаміравання трупаў, даследавання выдаленых пры аперацыі органаў і тканак).

**ПАТАЛО́К**, -лка́, *м.* (спец.). Найбольшая вышыня пад'ёму лятальнага апарата, а таксама (разм.) наогул мяжа, найбольш магчымая норма чаго-н.

**ПАТАМІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -то́міцца; -то́мімся, -то́міцеся, -то́мяцца; *зак.* Стаміцца — пра ўсіх, многіх.

**ПАТАМІ́ЦЬ**, -тамлю́, -то́міш, -то́міць; *зак., каго (што).* Стаміць усіх, многіх. *П. коней у дарозе.*

**ПАТАНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Тое, што і *тануць. Вёска патанае ў садах.*

**ПАТАННЕ́ЦЬ** *гл.* таннець.

**ПАТАНУ́ЦЬ** *гл.* тануць.

**ПАТАНЧЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́цца; *зак.* Стаць танчэйшым (*гл.* тонкі ў 1 знач.). *Нітка патанчылася.* ‖ *незак.* **патанча́цца**, -а́ецца *і* **пато́нчвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **патанчэ́нне**, -я, *н. і* **пато́нчванне**, -я, *н.*

**ПАТАНЧЫ́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -то́нчаны; *зак., што.* Зрабіць танчэйшым (*гл.* тонкі ў 1 знач.). *П. нітку.* ‖ *незак.* **патанча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **пато́нчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **патанчэ́нне**, -я, *н. і* **пато́нчванне**, -я, *н.*

**ПАТАНЧЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў тонкім, танчэйшым. *Патанчэлая шыя.*

**ПАТАНЧЭ́ЦЬ** *гл.* танчэць.

**ПАТАПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -то́піцца; -то́пімся, -то́піцеся, -то́пяцца; *зак.* Утапіцца — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае. *Усе патапіліся ў моры.*

**ПАТАПІ́ЦЬ** *гл.* тапіць[1].

**ПАТАПЛЕ́ННЕ** *гл.* тапіць[1].

**ПАТАПТА́ЦЬ** *гл.* таптаць.

**ПА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Каталіцкі святар. ‖ *прым.* **па́тарскі**, -ая, -ае.

**ПАТАРЧА́КА** *і* **ПАТЫРЧА́КА**, -і, *ДМ* -ча́цы, *мн.* -і, -ча́к, *ж.* Востры прадмет, які тырчыць адкуль-н. *Наткнуцца на патырчаку.*

**ПАТАЎСЦЕ́ЦЬ** *гл.* таўсцець.

**ПАТАЎСЦІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -то́ўсціцца; *зак.* Стаць таўсцейшым. ‖ *незак.* **патаўшча́цца**, -а́ецца.

**ПАТАЎСЦІ́ЦЬ**, -таўшчу́, -то́ўсціш, -то́ўсціць; -то́ўшчаны; *зак., што.* Зрабіць таўсцейшым. *П. нітку.* ‖ *незак.* **патаўшча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **патаўшчэ́нне**, -я, *н.*

**ПАТА́ЧКА** *гл.* патакаць.

**ПА́ТАЧНЫ** *гл.* патака.

**ПАТАЧЫ́ЦЬ** *гл.* тачыць[2].

**ПАТКНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нё́мся, -нё́цеся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* (разм.). **1.** Сунуцца, паказацца куды-н. *П. ў дзверы.* **2.** *перан.* Паспрабаваць што-н. зрабіць, памкнуцца. *П. сказаць слова.* ‖ *незак.* **патыка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПАТЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* **1.** Сатлець — пра ўсё, многае. **2.** Тлець некаторы час. *Галавешкі патлелі.*

**ПАТЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які моцна і часта пацее. *Патлівыя рукі.* ‖ *наз.* **патлі́васць**, -і, *ж.*

**ПАТЛУСЦЕ́ЦЬ** *гл.* тлусцець.

**ПА́ТЛЫ**, -аў (разм., пагард.). Доўгія нерасчэсаныя валасы; кудлы.

**ПАТО́К**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Імкліва цякучая водная маса, рака, ручай. *Бурны п. Веснавыя патокі.* **2.** *перан.* Маса вадкасці, паветра, якая імкліва цячэ, распаўсюджваецца. *П. лавы. П. газу. П. святла. П. слёз. П. слоў. П. бежанцаў.* **3.** Паточная вытворчасць (спец.). *Выраб маторaў арганізаваны па прынцыпе патоку.* **4.** Частка агульнага саставу навучэнцаў, раздзеленых для правядзення якіх-н. заняткаў, экзаменаў. *Выпускнікі аднаго патоку.*

**ПАТОЛАГААНА́ТАМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Урач, спецыяліст па паталагічнай анатоміі.

**ПАТО́ЛЯ**, -і, *ж.* **1.** Спачувальныя адносіны да слабейшых, спагада. *Адчуваць патолю з боку каго-н.* **2.** Патуранне, патаканне. *Не даваць патолі сыну.* **3.** Задаволенасць, супакоенасць. *Гэта паездка прынесла мне патолю.*

**ПАТО́МНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Які ад роду належыць да якога-н. саслоя (уст.). *П. дваранін.* **2.** Карэнны, спрадвечны. *П. пралетарый.*

**ПАТО́МНЫ**[2], -ая, -ае. Які выдаецца па тамах. *Патомнае выданне.*

**ПАТО́МСТВА**, -а, *н., зб.* **1.** Маладое пакаленне ў адносінах да старэйшых, бацькоў. *Не пакінуў патомства* (не меў дзяцей). *Жаўна са сваім патомствам* (з дзіцянятамі). **2.** Людзі будучых пакаленняў. *Подзвігі народа будзе помніць удзячнае п.*

**ПАТО́НЧВАННЕ** *гл.* патанчыць.

**ПАТО́НЧВАЦЦА** *гл.* патанчыцца.

**ПАТО́НЧВАЦЬ** *гл.* патанчыць.

**ПАТО́П**, -у, *м.* **1.** Паводле біблейскай легенды: паводка, якая за грахі людзей затапіла нібыта ўсю Зямлю. *Сусветны п. Пасля нас хоць п.!* (каб толькі нам было добра; неадабр.). **2.** Разводдзе, паводка; пра многа разлітай вады дзе-н. (разм., жарт.). *У нізінах вясною — цэлы п. Што тут за п. у вас у хаце?* ‖ *прым.* **пато́пны**, -ая, -ае.

**ПАТО́РГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Таргануць некалькі разоў. *П. за дзверы.*

**ПАТО́РГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., чым.* Злёгку, час ад часу торгаць. *П. плячом.*

**ПАТО́ЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які робіцца пры дапамозе канвеера, канвеерны. *П. выпуск прадукцыі. П. метад вытворчасці.*

**ПАТРАБАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Строгі, які патрабуе многага ад іншых. *П. загадчык.* **2.** З высокімі патрабаваннямі, вельмі разборлівы. *П. чытач.* **3.** Які выражае патрабаванне (у 2 знач.), настойлівы. *П. стук.* **4.** Які змяшчае патрабаванне (у 5 знач; спец.). *Патрабавальная ведамасць.* ‖ *наз.* **патрабава́льнасць**, -і, *ж.* (да 1—3 знач.).

**ПАТРАБАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* патрабаваць. **2.** Выражаная ў рашучай, катэгарычнай форме просьба аб тым, што павінна быць выканана, на што ёсць права. *На першае п.* **3.** Правіла, умова, абавязковая для выканання. *Выкананне патрабаванняў статута. Тэхналагічныя патрабаванні на выраб дэталі.* **4.** *мн.* Унутраныя патрэбнасці, запатрабаванні. *Чалавек без усялякіх патрабаванняў.* **5.** Афіцыйны дакумент з просьбай аб выдачы чаго-н., накіраванні каго-, чаго-н. куды-н. *П. на дровы. П. на маладых спецыялістаў.*

**ПАТРАБАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -бу́ецца; *незак.* Быць патрэбным, неабходным. *Патрабуецца рабочая сіла.*

**ПАТРАБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; *незак.* **1.** *чаго* і *са злуч.* «каб». Прасіць у катэгарычнай форме, будучы ўпэўненым у сваім праве на тое, каб гэта просьба была выканана. *П. дакладнасці. П. чыіх-н. тлумачэнняў.* **2.** *чаго ад каго-чаго.* Чакаць праяўлення якіх-н. уласцівасцей, дзеянняў. *Чытач патрабуе ад пісьменніка праўдзівага адлюстравання жыцця.* **3.** *каго-што.* Мець патрэбу ў кім-, чым-н. *Яго здароўе патрабуе цёплага клімату. Работа патрабуе кваліфікаванага кіраўніка.* ‖ *наз.* **патрабава́нне**, -я, *н.* (да 1, 2 і 4 знач.).

**ПАТРА́ВА**, -ы, *ж.* **1.** Знішчэнне, псаванне пасеваў, траў жывёлай. *Ахова азімых пасеваў ад патравы.* **2.** Страва, яда. *З салам і жук п.* (з нар.). ‖ *прым.* **патра́ўны**, -ая, -ае.

**ПАТРАВІ́ЦЬ** *гл.* травіць[2].

**ПАТРАНА́Ж**, -у, *м.* Рэгулярнае аказанне лячэбна-прафілактычнай дапамогі ў дамашніх умовах немаўлятам і некаторым катэгорыям хворых. ‖ *прым.* **патрана́жны**, -ая, -ае. *Патранажная сястра.*

**ПАТРАНА́Т**, -у, *М* -на́це, *м.* **1.** У Старажытным Рыме: форма апекі, якая ажыццяўлялася патронамі[2] (у 1 знач.). **2.** Форма выхавання дзяцей, якія страцілі бацькоў у сем'ях працоўных па даручэнні дзяржаўных органаў. ‖ *прым.* **патрана́тны**, -ая, -ае.

**ПАТРАНЕ́СА**, -ы, *мн.* -ы, -не́с, *ж.* (уст.). Апякунка ў дабрачыннай установе.

**ПАТРАНТА́Ш**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сумка, перавязь з гнёздамі для патронаў. ‖ *прым.* **патранта́шны**, -ая, -ае.

**ПАТРАПА́НЫ**, -ая, -ае. Які страціў першапачатковы выгляд ад працяглага

або неахайнага карыстання. *Патрапаная вопратка. П. часопіс.*

**ПАТРАПА́ЦЦА** *гл.* трапацца.

**ПАТРАПА́ЦЬ** *гл.* трапаць.

**ПАТРА́ПІЦЬ**, -плю, -піш, -піць; *зак.* (разм.). **1.** *у каго-што, на што.* Папасці, пацэліць. *Не п. рукой у рукаў.* **2.** Апынуцца дзе-н., трапіць куды-н. *Як ты сёння патрапіла аж у горад?* **3.** *каму.* Дагадзіць. *Яму цяжка п.* **4.** *з інф.* Змагчы, здолець зрабіць што-н. *Я не патрапіў дакладна адказаць ім.* ‖ *незак.* **патрапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПАТРА́ЦІЦЦА** *гл.* траціцца.

**ПАТРА́ЦІЦЬ** *гл.* траціць.

**ПАТРАШЫ́ЦЬ**, -рашу́, -ро́шыш, -ро́шыць; -ро́шаны; *незак., каго (што).* Вымаць вантробы. *П. курыцу. П. сумкі* (перан.: даставаць усё, што ў іх знаходзіцца; разм.). ‖ *зак.* **вы́патрашыць**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны.

**ПАТРО́ІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -о́іцца; *зак.* Павялічыцца, узмацніцца ўтрая. *Рады барацьбітоў патроіліся.* ‖ *незак.* **патро́йвацца**, -аецца.

**ПАТРО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., што.* Павялічыць, узмацніць утрая. *П. намаганні. П. энергію.* ‖ *незак.* **патро́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **патро́йванне**, -я, *н.*

**ПАТРО́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з трох частак, трайны. *П. канат.*

**ПАТРО́Н**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Гільза з капсулем, зарадам і куляй (або шротам). *Баявыя патроны.* **2.** Полая трубка, цыліндр для ўсталявання чаго-н. у розных прыстасаваннях, прыборах (спец.). ‖ *прым.* **патро́нны**, -ая, -ае.

**ПАТРО́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У Старажытным Рыме: асоба, якая брала пад сваю апеку бедных. **2.** Гаспадар прадпрыемства, фірмы. **3.** *перан.* Заступнік, абаронца (кніжн.).

**ПАТРО́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Задняя частка канала ствала агнястрэльнай зброі, куды ўкладваецца патрон[1] (у 1 знач.).

**ПАТРО́ХУ**, *прысл.* **1.** У невялікай колькасці, нямнога. *Ён есць п., але часта.* **2.** Паступова, з цягам часу. *Хворы пачаў п. папраўляцца.*

**ПА́ТРУБАК**, -бка, *мн.* -бкі, -бкаў, *м.* (спец.). Кароткая трубка, якая служыць адводам у трубаправодах, рэзервуарах і пад. ‖ *прым.* **па́трубкавы**, -ая, -ае.

**ПАТРУ́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Невялікая група ад воінскага падраздзялення, міліцыі, ад грамадскай аховы (ці ваеннае судна, самалёт) для нагляду за парадкам, за бяспекай у пэўным раёне. *Баявы п. П. міліцыі. Зялёны п.* (па ахове лесу). ‖ *прым.* **патру́льны**, -ая, -ае. *Патрульная служба.*

**ПАТРУЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; *незак., што* і *без дап.* Выконваць патрульную службу.

**ПАТРЫВО́ЖЫЦЦА** *гл.* трывожыцца.

**ПАТРЫВО́ЖЫЦЬ** *гл.* трывожыць.

**ПАТРЫЁТ**, -а, *М* -ёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, прасякнуты патрыятызмам. *Быць патрыётам сваёй Радзімы.* **2.** *перан., чаго.* Чалавек, шчыра адданы якой-н. справе, які горача любіць што-н. *П. свайго калектыву.* ‖ *ж.* **патрыётка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПАТРЫМА́НЫ**, -ая, -ае. Не новы, які выкарыстоўваўся. *Гандляваць патрыманай мэбляй.*

**ПАТРЫ́ЦЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Арыстакрат у Старажытным Рыме. ‖ *ж.* **патрыцыя́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **патрыцыя́нскі**, -ая, -ае.

**ПАТРЫЯ́РХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Старэйшына роду, родавай абшчыны. **2.** Вышэйшая духоўная асоба, кіраўнік праваслаўнай царквы (у 1 знач.). ‖ *прым.* **патрыя́ршы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПАТРЫЯРХА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* патрыярхат. **2.** *перан.* Верны старым традыцыям, устарэлы, традыцыйны. *П. ўклад жыцця. Патрыярхальныя звычкі.* ‖ *наз.* **патрыярха́льнасць**, -і, *ж.*

**ПАТРЫЯРХА́Т**, -у, *М* -ха́це, *м.* К перыяду распаду першабытнаабшчыннага ладу: эпоха, што змяніла сабой матрыярхат, для якой характэрна пануючае становішча мужчыны ў гаспадарчым і грамадскім жыцці. ‖ *прым.* **патрыярха́льны**, -ая, -ае.

**ПАТРЫЯ́РХІЯ**, -і, *ж.* Вобласць, падначаленая патрыярху (у 2 знач.).

**ПАТРЫЯТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Адданасць і любоў да сваёй Айчыны, да свайго народа. ‖ *прым.* **патрыяты́чны**, -ая, -ае.

**ПАТРЫЯТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* патрыятызм. **2.** Прасякнуты патрыятызмам. *П. ўчынак.* ‖ *наз.* **патрыяты́чнасць**, -і, *ж.*

**ПАТРЭ́БА**, -ы, *мн.* -ы, -рэ́б, *ж.* Неабходнасць чаго-н., у чым-н. *Прыйсці да каго-н. па патрэбе.* ◊ **Па сваёй патрэбе** — па натуральнай неабходнасці.

**ПАТРЭ́БНА**, *безас., у знач. вык.* Неабходнасць мець, трэба. *На гэта п. шмат часу.*

**ПАТРЭ́БНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Неабходнасць у чым-н., якая патрабуе задавальнення. *П. у кватэры. Матэрыяльныя і культурныя патрэбнасці.*

**ПАТРЭ́БНЫ**, -ая, -ае. Неабходны, які патрэбен. *Патрэбная колькасць чаго-н. Яму патрэбны грошы.*

**ПАТРЭ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* і *чым* (разм.). Трэсці злёгку, час ад часу. *Калёсы патрэсвае* (безас.) *на калдобінах. Конь патрэсвае галавой.*

**ПАТРЭ́СКАНЫ**, -ая, -ае. Які патрэскаўся, у трэшчынах. *П. асфальт.*

**ПАТРЭ́СКАЦЦА** *гл.* трэскацца.

**ПАТРЭ́СКВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Трашчаць злёгку, час ад часу. *Пад нагамі патрэсквала галлё.* ‖ *наз.* **патрэ́скванне**, -я, *н.*

**ПАТРЭ́СЦІ**, -расу́, -расе́ш, -расе́; -расём, -расяце́, -расу́ць; -ро́с, -рэ́сла; -расі́; -рэ́сены; *зак., каго-што.* Трасянуць некалькі разоў. *П. яблыню. У дарозе нас патрэсла* (безас.).

**ПАТУ́ГІ**, -ту́г, *адз.* -ту́га, -і, *ДМ* -ту́зе, *ж.* **1.** Напружанне мышцаў для якога-н. дзеяння. *Родавыя п.* **2.** *перан.* Намаганні, спробы зрабіць што-н. (пераважна няўдалыя). *Марныя п.*

**ПАТУЖЭ́ЦЬ** *гл.* тужэць.

**ПАТУ́ЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Тузануць некалькі разоў. *П. за рукаў.*

**ПАТУ́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што.* Тузаць злёгку, час ад часу. *П. лейцы.*

**ПАТУ́ЛЬ**, *прысл.* (разм.). Да таго часу. *Пакуль у гумне цэп, п. на стале хлеб* (прыказка).

**ПАТУПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -у́піцца; *зак.* Зрабіцца тупым, ступіцца — пра ўсё, многае. *Косы патупіліся.*

**ПАТУПІ́ЦЬ**, -уплю́, -у́піш, -у́піць; -у́плены; *зак., што.* Зрабіць тупым, ступіць усё, многае. *П. нажы.*

**ПАТУРА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто патурае каму-, чаму-н. ‖ *ж.* **патура́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАТУРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каму-чаму.* Не пярэчыць, паблажліва адносіцца (да чаго-н. заганнага, адмоўнага). *П. свавольству.* ‖ *наз.* **патура́нне**, -я, *н.*

**ПАТУРБАВА́ЦЦА**, -бу́юся, -бу́ешся, -бу́ецца; -бу́йся; *зак.* Праявіць турботу, клопат у адносінах да каго-, чаго-н. *П., каб дзяцей добра накармілі.*

**ПАТУРБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., каго (што).* Прычыніць некаторы клопат, неспакой, турботы каму-н. *Дазвольце вас п.*

**ПАТУХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *незак.* Тое, што і *тухнуць*[1].

**ПАТУ́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які перастаў гарэць, свяціць. *Патухлая зорка.* **2.** *перан.* Цьмяны, без жыцця (пра вочы, погляд). *Патухлыя вочы.*

**ПАТУ́ХНУЦЬ** *гл.* тухнуць[1].

**ПАТУШЫ́ЦЬ**[1] *гл.* тушыць[1].

**ПАТУШЫ́ЦЬ**[2] *гл.* тушыць[2].

**ПАТЫДНЁВЫ**, -ая, -ае. Які праводзіцца, робіцца па тыднях. *Патыднёвая аплата.*

**ПАТЫКА́НЫ**, -ая, -ае. Вытканы па аснове рознакаляровым утком. *Патыканая коўдра.*

**ПАТЫКА́ЦЦА** *гл.* паткнуцца.

**ПАТЫ́ЛІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ліц, *ж.* Задняя частка чэрапа, галавы. *Сунуць шапку на патыліцу. Чухаць патыліцу* (таксама перан.: быць заклапочаным чым-н.; разм.). ‖ *прым.* **паты́лічны**, -ая, -ае.

**ПАТЫНКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* **1.** Атынкаваць усё, многае. *П. усе сцены.* **2.** і *без дап.* Тынкаваць некаторы час. *П. з гадзіну.*

**ПАТЫРЧА́КА** *гл.* патарчака.

**ПАТЫСО́Н**, -а, *м.* **1.** Агародная расліна сямейства гарбузовых з пляскатым акругленым плодам. **2.** *мн.* -ы, -аў. Плод гэтай расліны. ‖ *прым.* **патысо́навы**, -ая, -ае.

**ПАТЫХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *незак.* **1.** Слаба дзьмуць, веяць (пра вецер).

*Ад ракі патыхала* (безас.) *халадком.* **2.** *чым.* Моцна вылучаць які-н. пах. *Сасна патыхае жывіцай.*

**ПАТЭЛЕФАНАВА́ЦЬ** *гл.* тэлефанаваць.

**ПАТЭ́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Мелкая металічная пасудзіна з загнутымі краямі для смажання; скаварада.

**ПАТЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дакумент, у якім засведчана права вынаходніка на вынаходніцтва. *Атрымаць п. на што-н.* **2.** Пасведчанне на права займацца гандлем, промыслам і пад. (уст.). ‖ *прым.* **патэ́нтавы**, -ая, -ае *і* **патэ́нтны**, -ая, -ае.

**ПАТЭНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што.* Выдаць (выдаваць) патэнт (у 1 знач.) на што-н. *П. вынаходніцтва.* ‖ *зак.* таксама **запатэнтава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны.

**ПАТЭ́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (кніжн.). Магчымасць, тое, што існуе ў скрытым выглядзе і можа праявіцца пры пэўных умовах.

**ПАТЭНЦЫЯ́Л**, -у, *м.* **1.** Фізічная велічыня, што характарызуе сілавое поле ў дадзеным пункце (спец.). **2.** *перан.* Ступень магутнасці ў якіх-н. адносінах, сукупнасць сродкаў, неабходных для чаго-н. (кніжн.). *Ваенны п.* (рэсурсы для вядзення вайны). *Эканамічны п. краіны.*

**ПАТЭНЦЫЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які існуе ў патэнцыі; магчымы. *Патэнцыяльная энергія. Патэнцыяльныя сілы.*

**ПАТЭ́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* (кніжн.). Наяўнасць патэтычнага тону, патэтычнага элемента ў чым-н. *Сказаць што-н. з патэтыкай.*

**ПАТЭТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Поўны пафасу, усхваляваны, страсны. *П. стыль. Патэтычная прамова.* ‖ *наз.* **патэты́чнасць**, -і, *ж.*

**ПАТЭФО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Партатыўны грамафон з рупарам усярэдзіне. ‖ *прым.* **патэфо́нны**, -ая, -ае. *Патэфонныя іголкі.*

**ПАЎ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае: 1) палавіну чаго-н., у палавінным памеры, напр.: *паўакружнасць, паўгадавы, паўвалока;* 2) не зусім або амаль, напр.: *паўдзікі, паўпісьменны, паўзабыты, паўстацыянар;* 3) не да канца, не ў поўнай меры, напр.: *паўляжаць, паўсядзець;* 4) з прыметамі дзвюх розных уласцівасцей, двух відаў, дзвюх парод, напр.: *паўкачэўнік, паўсабака-паўвоўк, паўюнак-паўпадлетак, паўшаўковы.*

**ПАЎАБАРО́Т**, -а, *М* -ро́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Няпоўны, на чвэрць круга паварот фігуры. *П. кола. Стаяць паўабаротам* (у знач. прысл.).

**ПАЎАСВЕ́ТЛЕНЫ**, -ая, -ае. Недастаткова, слаба асветлены. *П. пакой.*

**ПАЎБІВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Убіцца — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАЎБІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Убіць усё, многае. *П. цвікі.*

**ПАЎБІРА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Убрацца — пра ўсіх, многіх ці ўсё, многае.

**ПАЎБІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Убраць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. збажыну з палёў. П. дачок у новае адзенне.*

**ПАЎБО́ЦІКІ**, -аў. Боты з кароткімі халявамі.

**ПАЎБЯДЫ́**, *у знач. вык.* (разм.). Не так дрэнна, не так страшна. *Гэта яшчэ п.*

**ПАЎВА́ЛЬВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Уваліцца — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае.

**ПАЎВО́СТРАЎ**, -рава, *мн.* паўастравы́, паўастраво́ў, *м.* Частка сушы, якая з трох бакоў абмываецца морам, а чацвёртым прымыкае да мацерыка, вострава. *Кольскі п.* ‖ *прым.* **паўастраўны́**, -а́я, -о́е.

**ПАЎГАДЗІ́НЫ**, *ж.* Трыццаць хвілін. *І п. не мінула, як ён вярнуўся.*

**ПАЎГІНА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Увагнуцца — пра ўсё, многае ці пра ўсіх, многіх.

**ПАЎГІНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* Увагнуць усё, многае.

**ПАЎГО́ДА**, *м.* Палавіна года. *Прайшло п. Дзяўчынцы ўжо п.*

**ПАЎГО́ДДЗЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Прамежак часу ў паўгода. *Другое п.* ‖ *прым.* **паўгадавы́**, -а́я, -о́е. *Паўгадавая служба. Паўгадавая справаздача.*

**ПАЎДАРО́ГІ**, на паўдаро́зе, *ж.* Палавіна дарогі, шляху. *Праехаць п. Спыніцца на паўдарозе* (таксама перан.: не закончыўшы пачатай справы).

**ПАЎДЗЁННЫ** *гл.* поўдзень[2].

**ПАЎДНЁВА-ЎСХО́ДНІ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да паўднёвага ўсходу — напрамку паміж поўднем і ўсходам. *П. напрамак ветру.*

**ПАЎДНЁВЫ**[1–2] *гл.* поўдзень[1–2].

**ПАЎЖА́РТАМ**, *прысл.* З адценнем жартаўлівасці. *Сказаць што-н. п.*

**ПАЎЗ**, *прыназ. з В.* Ужыв. пры назвах мясцін, прадметаў, уздоўж або непадалёку ад якіх што-н. размяшчаецца ці рухаецца. *Праязджалі п. лес.*

**ПА́ЎЗА**, -ы, *мн.* -ы, паўз *і* па́ўзаў, *ж.* Кароткі перапынак у гучанні, гаворцы, працы і пад.

**ПАЎЗАБЫЦЦЁ**, -я́, *н.* Амаль непрытомны стан. *Ляжаць у паўзабыцці.*

**ПАЎЗБІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Узбіць усё, многае. *П. падушкі.*

**ПАЎЗБУ́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго (што).* Узбудзіць усіх, многіх. *П. дзяцей.*

**ПАЎЗВЕ́РХ. 1.** *прысл.* Вышэй за паверхню чаго-н., над кім-, чым-н. *Глядзець п.* **2.** *прыназ. з Р.* Ужыв. з назвамі месца або прадмета, над паверхняй якіх што-н. размяшчаецца, адбываецца, рухаецца. *Вада ішла п. лёду.*

**ПАЎЗВО́ДНА**, *прысл.* Пра ваенны строй: узводамі, адзін узвод за другім. *Ісці п.*

**ПАЎЗДЗІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Уздраць усё, многае. *П. масні-чыны.*

**ПАЎЗКО́М**, *прысл.* Пра перамяшчэнне: прыпадаючы тулавам да паверхні, перабіраючы па ёй рукамі і нагамі. *Прабірацца куды-н. п.*

**ПАЎЗЛА́ЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ла́зіць; -ла́зім, -ла́зіце, -ла́зяць; *зак.* Узлезці — пра ўсіх, многіх.

**ПАЎЗМРО́К**, -у, *м.* Няпоўны змрок, вельмі слабае асвятленне. *У хаце п.*

**ПАЎЗМРО́ЧНЫ**, -ая, -ае. Не зусім асветлены, цемнаваты. *П. пакой.*

**ПАЎЗНІМА́ЦЦА** *і* **ПАЎЗДЫМА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Узняцца — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае.

**ПАЎЗНІМА́ЦЬ** *і* **ПАЎЗДЫМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Узняць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. байцоў па трывозе.*

**ПАЎЗРЫВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Узарвацца — пра ўсё, многае. *Снарады паўзрываліся.*

**ПАЎЗРЫВА́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак., што.* Узрыць усё, многае. *Свінні паўзрывалі грады.*

**ПАЎЗРЫВА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Узарваць усё, многае. *П. масты.*

**ПАЎЗУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Той, хто не ўмее яшчэ хадзіць, а толькі поўзае (разм.). **2.** Дэталь механізма, якая слізгаецца ўзад і ўперад па чым-н. у прамалінейным напрамку (спец.). **3.** *мн.* Клас пазваночных жывёл, якія перамяшчаюцца пераважна паўзком (змеі, яшчаркі, кракадзілы, чарапахі). ‖ *прым.* **паўзу́нны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.). *П. механізм.*

**ПАЎЗУНО́К**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.* **1.** Тое, што і *паўзун* (у 1 і 2 знач.). **2.** *мн.* Спецыяльны касцюм для маленькіх дзяцей, калі яны яшчэ не ўмеюць хадзіць, а толькі поўзаюць. ‖ *прым.* **паўзунко́вы**, -ая, -ае.

**ПАЎЗУ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які поўзае, перамяшчаецца шляхам поўзання. *Паўзучыя гады* (пра змей). **2.** Які сцелецца па зямлі або чапляецца за што-н. *Паўзучыя расліны.* ○ **Паўзучы эмпірызм** (кніжн., неадабр.) — няўмелае апісанне фактаў без іх аналізу і абагульнення.

**ПАЎЗЦІ́**, -зу́, -зе́ш, -зе́; -зём, -зяце́, -зу́ць; по́ўз, паўзла́, -ло́; -зі́; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Перамяшчацца па паверхні ўсім целам (пра паўзуноў) ці на ножках (пра насякомых). *Жук паўзе. Павук паўзе па сцяне. Туман паўзе па нізіне* (перан.). **2.** Пра чалавека: перамяшчацца, прыпадаючы тулавам да паверхні і перабіраючы па ёй рукамі і нагамі. *Байцы паўзлі на жыватах. Дзіця паўзе па падлозе.* **3.** Ісці, перамяшчацца вельмі павольна (разм.). *Цягнік паўзе.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Расці, прылягаючы да паверхні, чапляючыся за яе. *Па ствале дрэва поўз плюшч.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Апаўзаць, асыпацца. *Грунт паўзе.*

6. (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра паўвадкую масу: цячы, выцякаць адкуль-н. (разм.). *Цеста паўзе з дзяжы.* 7. (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Распаўсюджвацца, перадавацца (разм.). *Чуткі паўзлі ва ўсе бакі.*

**ПАЎЗЫХО́ДЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -дзіць; -дзім, -дзіце, -дзяць; *зак.* Узысці — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае.

**ПАЎКАЖУ́ШАК**, -шка, *мн.* -шкі, -шкаў, *м.* Кароткі, да каленяў, кажух.

**ПАЎКІДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ПАЎКІ́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Укінуць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. рыдлёўкі ў пуню.*

**ПАЎКІСА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Укіснуць — пра ўсё, многае.

**ПАЎКЛАДА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца *і* **ПАЎКЛА́ДВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Укласціся — пра ўсіх, многіх. *Усе паўкладаліся (паўкладваліся) спаць.*

**ПАЎКЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАЎКЛА́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Укласці ўсіх, многіх або ўсё, многае. *П. дзяцей спаць.*

**ПАЎКЛЕ́ЙВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Уклеіць усё, многае. *П. лісты ў кнігу.*

**ПАЎКО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Укапаць усё, многае. *П. слупы.*

**ПАЎКО́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Укаціць усё, многае. *П. бочкі ў склеп.*

**ПАЎКРО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Пра жывёл: які атрымліваецца ад скрыжавання чыстакроўнага вытворніка і маткі простай пароды або ад скрыжавання чыстакроўнай маткі і вытворніка простай пароды.

**ПАЎКРУ́Г**, -а, *М* -ру́зе, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Палавіна круга або акружнасці. *Сесці паўкругам.*

**ПАЎКРУ́ЧВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Укруціцца — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае.

**ПАЎКРУ́ЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Укруціць усё, многае або усіх, многіх. *П. лямпачкі. П. дзяцей у хусткі.*

**ПАЎКРЫВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Укрыцца — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае.

**ПАЎКРЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Укрыць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. бурты саломай.*

**ПАЎЛА́ЗІЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -зіць; -зім, -зіце, -зяць; *зак.* Улезці — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае. *П. у вагон. П. у даўгі.*

**ПАЎЛІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Птушка сямейства фазанавых са стракатым апярэннем надхвосця ў самцоў. ‖ *прым.* **паўлі́навы**, -ая, -ае. *Варона ў паўлінавым пер'і* (перан.: пра чалавека, які лічыць сябе больш важным, чым ёсць на самай справе; іран.).

**ПАЎЛІПА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Уліпнуць — пра ўсё, многае ці пра ўсіх, многіх. *Лісце паўліпала ў гразь.*

**ПАЎЛІ́ТРА**, *н.* Палавіна літра. *П. малака.*

**ПАЎЛІТРО́ВЫ**, -ая, -ае. Ёмістасцю ў паўлітра. *Паўлітровая бутэлька.*

**ПАЎЛІТРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* (разм.). Бутэлька гарэлкі ёмістасцю ў паўлітра.

**ПАЎЛЯЖА́ЦЬ**, -ляжу́, -ляжы́ш, -ляжы́ць; -ляжы́м, -лежыце́, -ляжа́ць; -ляжы́; *незак.* Ляжаць з прыўзнятай верхняй часткай тулава.

**ПАЎМА́ЗВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Умазацца, замазацца — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае. *Дзеці паўмазваліся ў гразь.*

**ПАЎМА́ЗВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Умазаць, замазаць усё, многае ці ўсіх, многіх. *П. кручкі ў сцены. П. рукі ў сажу.*

**ПАЎМА́СКА**, -і, *ДМ* -ма́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Вузкая маска, якая закрывае толькі верхнюю частку твару.

**ПАЎМАЦО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Умацаваць усё, многае.

**ПАЎМЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ме́р, *ж.* Палавінчатае дзеянне, рашэнне, якое не вырашае справы. *Не абмяжоўвацца паўмерамі.*

**ПАЎМЕ́СЯЦ**, -а, *м.* Няпоўны дыск месяца; серп месяца.

**ПАЎМІРА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Памерці — пра ўсіх, многіх. *Бацькі даўно паўміралі.*

**ПАЎМІ́САК**, -ска, *мн.* -скі, -скаў, *м.* Неглыбокая міска.

**ПАЎМУРО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Умураваць усё, многае.

**ПАЎМЫВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Умыцца — пра ўсіх, многае.

**ПАЎМЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Умыць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. дзяцей. П. твары.*

**ПАЎМЯРЗА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Умерзнуць — пра ўсё, многае. *Лодкі паўмярзалі ў лёд.*

**ПАЎНА...** (*гл.* **поўна...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «поўна...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *паўнагруды, паўналецце, паўнацелы.*

**ПАЎНАВА́ЖКІ**, -ая, -ае. Які мае поўную, нармальную вагу. *Паўнаважкія каласы.*

**ПАЎНАВО́ДДЗЕ**, -я, *н.* Высокі ўзровень вады ў рэках. *Веснавое п.*

**ПАЎНАВО́ДНЫ**, -ая, -ае. З высокім узроўнем вады. *Паўнаводныя рэкі.*

**ПАЎНАГУ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае дастатковую паўнату гучання. *П. голас.* ‖ *наз.* **паўнагу́чнасць**, -і, *ж.*

**ПАЎНАКРО́ЎНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* паўнакроўны. **2.** Павелічэнне масы крыві ў сасудах цела.

**ПАЎНАКРО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вылучаецца паўнакроўнасцю (у 2 знач.). *П. мужчына.* **2.** *перан.* Актыўны, змястоўны, жыццярадасны. *Паўнакроўнае жыццё.* ‖ *наз.* **паўнакро́ўнасць**, -і, *ж.*

**ПАЎНАЛЕ́ТНІ**, -яя, -яе. Які дасягнуў паўналецця.

**ПАЎНАЛЕ́ЦЦЕ**, -я, *н.* Узрост, калі чалавек дасягае фізічнай і духоўнай сталасці і атрымлівае грамадзянскія правы. *Дасягнуць паўналецця.*

**ПАЎНАМО́ЦНЫ**, -ая, -ае. Надзелены якімі-н. паўнамоцтвамі. *П. прадстаўнік.*

**ПАЎНАМО́ЦТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Права, дадзенае каму-н. для выканання чаго-н. *Дэпутацкія паўнамоцтвы. Быць надзеленым надзвычайнымі паўнамоцтвамі.*

**ПАЎНАПРА́ЎЕ**, -я, *н.* (кніжн.). Валоданне ўсімі законнымі правамі.

**ПАЎНАПРА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які мае паўнату правоў, усе законныя правы. *П. грамадзянін.* ‖ *наз.* **паўнапра́ўнасць**, -і, *ж.*

**ПАЎНАТА́**, -ы́, *ДМ* -нацэ́, *ж.* **1.** Наяўнасць чаго-н. у дастатковай ступені, вышэйшая ступень насычанасці чым-н. *П. ўлады. П. мастацкага выражэння. Ад паўнаты пачуццяў* (ад празмернасці пачуццяў, якія нібыта напаўняюць усяго чалавека). **2.** Сытасць, укормленасць. *Нездаровая п.*

**ПАЎНАЦЭ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае поўную, нармальную цэннасць. *Паўнацэнная валюта.* **2.** Які поўнасцю адпавядае патрабаванням. *П. прадукт.* ‖ *наз.* **паўнацэ́ннасць**, -і, *ж.*

**ПАЎНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Становіцца паўнейшым, таўсцейшым. *П. пад старасць.* ‖ *зак.* **папаўне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**ПАЎНО́СІЦЬ**, -о́шу, -о́сіш, -о́сіць; *зак., каго-што.* Унесці ўсё, многае або ўсіх, многіх. *П. прозвішчы ўсіх у спіс. П. адзенне ў хату.*

**ПАЎНО́ЧНА-ЎСХО́ДНІ**, -яя, -яе. Які мае адносіны да паўночнага ўсходу — напрамку паміж поўначчу і ўсходам. *П. вецер.*

**ПАЎНО́ЧНІК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Жыхар, ураджэнец Поўначы. ‖ *ж.* **паўно́чніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАЎНО́ЧНІК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто не кладзецца спаць да позняй ночы. ‖ *ж.* **паўно́чніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАЎНО́ЧНЫ**[1] *гл.* поўнач[1].

**ПАЎНО́ЧНЫ**[2] *гл.* поўнач[2].

**ПАЎПАВАРО́Т**, -у, *М* -ро́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Няпоўны паварот, палавіна кругавога павароту.

**ПАЎПАЛІТО́**, *нескл., н.* Кароткае, не ніжэй за калені, паліто.

**ПАЎПІ́СВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Упісаць усіх, многіх або ўсё, многае. *П. прапушчаныя словы.*

**ПАЎПРАВАДНІКІ́**, -о́ў, *адз.* паўправаднік, -а́, *м.* (спец.). Рэчывы, электраправоднасць якіх пры хатняй тэмпературы меншая, чым у металаў, і большая, чым у дыэлектрыкаў. ‖ *прым.* **паўправаднiко́вы**,

-ая, -ае. *Паўправадніковая ўстаноўка* (на паўправадніках).

**ПАЎПУСТЫ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -ты́нь, *ж.* Геаграфічная зона, якая з'яўляецца пераходнай паміж пустыняй і стэпам. ‖ *прым.* **паўпусты́нны**, -ая, -ае.

**ПАЎРАДКО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (спец.). Адна з дзвюх частак вершаванага радка, раздзеленага паўзай (цэзурай).

**ПАЎРАСТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Урасці — пра ўсё, многае. *Паўрасталі зеллем печышчы.*

**ПАЎРУБЕ́ЛЬ**, -бля́, *мн.* -блі́, -блёў, *м.* Руская манета вартасцю 50 капеек. ‖ *прым.* **паўрублёвы**, -ая, -ае.

**ПАЎРУБЛЁЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -лёвак, *ж.* (разм.). Руская манета вартасцю паўрубля.

**ПАЎСАГНУ́ТЫ**, -ая, -ае. Сагнуты напалавіну, прыгнуты. *Замерці ў паўсагнутым становішчы.*

**ПАЎСКА́КВАЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ае; -аем, -аеце, -аюць; *зак.* Ускочыць — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае. *П. з месцаў. На вадзе паўскаквалі бурбалкі.*

**ПАЎСКІДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПАЎСКІ́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* Ускінуць усё, многае. *П. каменне на падводу.*

**ПАЎСКЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ПАЎСКЛА́ДВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Ускласці ўсё, многае. *П. мяхі на воз.*

**ПАЎСКО́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Ускапаць усё, многае. *П. грады.*

**ПАЎСЛО́ВА**, -а, *н.* Палавіна слова. *Напісаць п. З паўслова разумець* (з першых слоў, з намёку; разм.). *На п. выклікаць каго-н.* (для кароткай размовы; разм.). *На паўслове спыніцца* (рэзка спыніць пачатую гаворку).

**ПАЎСМЕ́РЦЬ**, -і, *ж.* У выразе: **да паўсмерці** (разм.) — вельмі моцна (пра што-н. адмоўнае). *Змарыўся да паўсмерці. Збіць да паўсмерці.*

**ПАЎСО́Н**, -сну́, *м.* Стан, блізкі да сну. *Знаходзіцца ў паўсне.*

**ПАЎСО́ННЫ**, -ая, -ае. Які засынае або не зусім прачнуўся. *П. выгляд. П. стан.*

**ПАЎСПУХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Успухнуць — пра ўсё, многае. *Пальцы паўспухалі ад холаду.*

**ПАЎСТАВА́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -тае́; -таём, -таяце́, -таюць; *зак.* Устаць — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае.

**ПАЎСТАВА́ЦЬ**[2] *гл.* паўстаць.

**ПАЎСТА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Удзельнік паўстання. ‖ *прым.* **паўста́нцкі**, -ая, -ае. *П. атрад.*

**ПАЎСТА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Масавае ўзброенае выступленне. *П. пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага.*

**ПАЎСТАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак., што.* Уставіць усё, многае. *П. шыбы ў вокны.*

**ПАЎСТА́ЦЬ**, -а́ну, -а́неш, -а́не; *зак.* **1.** Узняцца на барацьбу з кім-, чым-н., супраць каго-, чаго-н., узняць паўстанне. *Народ паўстаў супраць царызму.* **2.** *супраць чаго.* Не згаджаючыся, пярэчачы, выступіць супраць чаго-н. (высок.). *П. супраць несправядлівасці.* **3.** *перан.* Узнікнуць у памяці, ва ўяўленні. *У думках паўстала ўсё ранейшае жыццё.* **4.** З'явіцца перад вачамі, паказацца. *Перад намі паўстала цікавая карціна.* ‖ *незак.* **паўстава́ць**, -таю́, -тае́ш, -тае́; -таём, -таяце́, -таюць.

**ПАЎСХО́ПЛІВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Усхапіцца — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае. *П. са сну. На руках паўсхопліваліся пухіры.*

**ПАЎСЦЯ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Усцягнуць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. мяхі на воз.*

**ПАЎСЫПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* Усыпаць усё, многае. *П. бульбу ў склеп.*

**ПАЎСЫХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Усохнуць — пра ўсё, многае. *Дрэвы паўсыхалі.*

**ПАЎСЮ́ДНЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца, бывае ўсюды. *Паўсюдная ўборка бульбы.* ‖ *наз.* **паўсю́днасць**, -і, *ж.*

**ПАЎСЯДЗЁННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які праводзіцца дзень пры дні, заўсёды, пастаянна, які не спыняецца. *Паўсядзённыя трэніровачныя практыкаванні.* **2.** Які бывае заўсёды, звычайны. *Паўсядзённыя патрэбы насельніцтва.* ‖ *наз.* **паўсядзённасць**, -і, *ж.*

**ПАЎСЯМЕ́СНЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца, праходзіць усюды. *Паўсямесныя замаразкі.* ‖ *наз.* **паўсяме́снасць**, -і, *ж.*

**ПАЎТАРА́**, *м.* і *н.* *і* **ПАЎТАРЫ́**, *ж., ліч.* Лік, колькасць чаго-н., роўная адзінцы з палавінай. *Паўтара года. Паўтары шклянкі. Паўтара вядра. Паўтара сутак.* ‖ *прым.* **паўтара́чны**, -ая, -ае (разм.). *П. ложак* (па шырыні сярэдні паміж двухспальным і аднаспальным).

**ПАЎТАРА...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае: памерам, мерай у паўтары адзінкі чаго-н., напр.: *паўтарагадовы, паўтаратонны.*

**ПАЎТАРА́СТА**, *ліч.* Сто пяцьдзясят. *П. рублёў.*

**ПАЎТАРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* паўтарыцца. **2.** Паўтараць тое, што самім сабой ужо было зроблена, сказана. *Ты ўжо стаў п. ў гаворцы.*

**ПАЎТАРА́ЧНЫ** *гл.* паўтара.

**ПАЎТАРЫ́ЦЦА**, -тару́ся, -то́рышся, -то́рыцца; *зак.* Адбыцца, ажыццявіцца яшчэ раз. *Памылкі паўтарыліся. Хвароба паўтарылася.* ‖ *незак.* **паўтара́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **паўтарэ́нне**, -я, *н.*

**ПАЎТАРЫ́ЦЬ**, -тару́, -то́рыш, -то́рыць; -то́раны; *зак., што.* **1.** Сказаць або зрабіць яшчэ раз. *П. сказанае. П. паездку.* **2.** Аднавіць у памяці вядомае, завучанае. *П. урок.* ‖ *незак.* **паўтара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **паўтарэ́нне**, -я, *н.*

**ПАЎТАРЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* паўтарацца, паўтараць. **2.** *мн.* -і, -яў. Месца, з'ява, што паўтараюцца ў чым-н. *У рамане сустракаюцца паўтарэнні.*

**ПАЎТЛУ́СТЫ**, -ая, -ае (спец.). Сярэдні таўшчыні паміж тлустым і светлым (пра шрыфт).

**ПАЎТО́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адзінка вымярэння музычных інтэрвалаў — найменшая адлегласць паміж гукамі па вышыні. **2.** Пераход ад светлага, яркага тону, колеру да цёмнага.

**ПАЎТО́ПТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Утаптаць усё, многае. *П. лісце ў зямлю.*

**ПАЎТО́РНЫ**, -ая, -ае. Які ўяўляе сабой паўтарэнне; другаразовы. *Паўторнае ворыва. Паўторнае захворванне.* ‖ *наз.* **паўто́рнасць**, -і, *ж.*

**ПАЎТУ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Утуліць усё, многае. *П. галовы ў каўняры.*

**ПАЎТЫКА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Уткнуцца — пра ўсіх, многіх або ўсё, многае. *Стрэлы паўтыкаліся ў зямлю.*

**ПАЎТЫКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Уткнуць усё, многае. *П. тычкі ў зямлю.*

**ПАЎУСТА́Ў**, -та́ва, *м.* Адзін з тыпаў пісьма старажытных грэчаскіх і славянскіх рукапісаў, сярэдні паміж уставам і скорапісам. ‖ *прым.* **паўуста́ўны**, -ая, -ае.

**ПАЎФАБРЫКА́Т**, -у, *М* -ка́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Выраб, які мае патрэбу ў далейшай, канчатковай апрацоўцы. *Мясныя паўфабрыкаты.* ‖ *прым.* **паўфабрыка́тны**, -ая, -ае.

**ПАЎФІНА́Л**, -у, *м.* У спартыўных спаборніцтвах: гульня на першынство, якая папярэднічае фіналу. ‖ *прым.* **паўфіна́льны**, -ая, -ае. *Паўфінальная сустрэча.*

**ПАЎХМЫЗНЯ́К**, -у́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Расліна з драўнянымі ніжнімі і травяністымі верхнімі часткамі. *Буякі адносяцца да паўхмызнякоў.* ‖ *прым.* **паўхмызняко́вы**, -ая, -ае.

**ПАЎХУ́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Ухутаць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАЎЦАНЫ́**. У выразе: **за паўцаны** (разм.) — за палавінную цану. *Прадаць за п.*

**ПАЎЦЕ́МРА**, -ы, *ж.* Амаль поўная адсутнасць святла, асвятлення. *У будынку панавала п.*

**ПАЎЦЕ́НЬ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Слабы празрысты цень.

**ПАЎЦЁМНЫ**, -ая, -ае. Слаба асветлены. *Паўцёмныя сцены.*

**ПАЎЦІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Уцерці ўсё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАЎЦІСКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Уціснуць усё, многае. *П. сена на вазах вяроўкамі.*

**ПАЎЦЯ́ГВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Уцягнуць усё, многае або ўсіх, многіх. *Паўцягвала* (безас.) *жываты.*

**ПАЎЦЯКА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́е; -а́ем, -а́еце, -а́юць; *зак.* Уцячы — пра ўсіх, многіх. *Палонныя паўцякалі з лагера.*

**ПАЎША́Р'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Палавіна шара, а таксама прадмет такой формы. *Левае п. галаўнога мозга.* **2.** Адна з палавін зямнога шара ці нябеснай сферы. *Паўднёвае п.*

**ПАЎШЧУВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго.* Пажурыць, падакараць каго-н. з выхаваўчай мэтай. *Панас паўшчуваў сына за паводзіны ў школе.*

**ПАЎШЧЭ́МЛІВАЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -аецца; -аемся, -аецеся, -аюцца; *зак.* Ушчаміцца — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае.

**ПАЎШЧЭ́МЛІВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Ушчаміць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПАЎЯДА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Уесціся — пра ўсё, многае. *Фарба паўядалася ў рукі. Аборы паўядаліся ў ногі.*

**ПАФАРБАВА́ЦЦА** *гл.* фарбавацца.

**ПАФАРБАВА́ЦЬ** *гл.* фарбаваць.

**ПАФАРБО́ЎКА** *гл.* фарбаваць.

**ПА́ФАС**, -у, *м.* (кніжн.). Моцнае натхненне, уздым, энтузіязм. *Гаварыць з пафасам. П. творчай працы.* ‖ *прым.* **па́фасны**, -ая, -ае.

**ПАХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Уласцівасць рэчываў, якая ўспрымаецца органамі нюху. *Прыемны п. П. кветак.*

**ПА́ХА**, -і, *ДМ* па́се, *мн.* -і, пах, *ж.* Унутраная частка плечавога выгібу. *Несці скрутак пад пахай. Узяць што-н. пад паху* або *пад пахі.* ◊ **Лахі пад пахі** (разм.) — узяўшы самае неабходнае, хутчэй выбірацца адкуль-н. ‖ *прым.* **па́хавы**, -ая, -ае.

**ПАХА́БНЫ**, -ая, -ае (разм.). Непрыстойны, бессаромны. *Пахабныя словы.* ‖ *наз.* **паха́бнасць**, -і, *ж.*

**ПАХАВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* хаваць², хаўтуры. **2.** Цыкл абрадаў, звязаных з ушанаваннем памяці нябожчыка і праводзінамі яго ў апошні шлях. **3.** Месца, дзе пахаваны хто-н. *Раскопкі пахаванняў.* ‖ *прым.* **пахава́льны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *П. абрад. Пахавальная* (наз.: паведамленне з дзеючай арміі родным пра гібель ваеннаслужачага; разм.).

**ПАХАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца; *зак.* Схавацца — пра ўсіх, многіх ці пра ўсё, многае.

**ПАХАВА́ЦЬ**¹, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Схаваць многіх, многае. *П. усе рэчы.* ‖ *звар.* **пахава́цца**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -а́ецца.

**ПАХАВА́ЦЬ**² *гл.* хаваць².

**ПАХАДА́ЙНІЧАЦЬ** *гл.* хадайнічаць.

**ПАХАДЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Хадзіць (у 1 знач.) не спяшаючыся, прагульваючыся. *П. каля хаты.*

**ПАХАДЗІ́ЦЬ**, -хаджу́, -хо́дзіш, -хо́дзіць; *зак.* Хадзіць (у 1 [*гл.* ісці ў 1 знач.], 2—6 знач.) некаторы час. *П. па лесе. П. у новай сукенцы. П. у кіраўніках. П. за хворым дзіцем.*

**ПАХАЛАДА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Надыход халоднага надвор'я, пераход да халаднейшай тэмпературы паветра. *Пачалося п.*

**ПАХАЛАДА́ЦЬ** *гл.* халадаць.

**ПАХАЛАДЗЕ́ЦЬ** *гл.* халадзець.

**ПАХАЛАДНЕ́ЦЬ** *гл.* халаднець.

**ПАХАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Узяць, схапіць усё, многае або ўсіх, многіх.

**ПАХАРАШЭ́ЦЬ** *гл.* харашэць.

**ПАХВАЛА́**, -ы́, *мн.* -ы, -ва́л, *ж.* Добры водзыў пра каго-, што-н., адабрэнне. *Адзывацца з пахвалой пра каго-н.*

**ПАХВАЛІ́ЦЦА** *гл.* хваліцца.

**ПАХВАЛІ́ЦЬ** *гл.* хваліць.

**ПАХВАЛЬБА́**, -ы́, *ж.* (разм.). **1.** Выхваленне сваімі справамі, учынкамі і пад., самахвальства. **2.** Тое, што і *пахвала.*

**ПАХВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які заслугоўвае пахвалы. *Пахвальнае імкненне.* **2.** Які змяшчае пахвалу. *Пахвальныя словы. Пахвальная грамата* (за выдатныя поспехі і паводзіны).

**ПАХВАЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* (разм.). Хваліцца, выхваляцца. *Пахваляецца, што ўсіх адужае.*

**ПАХВАРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць хворымі — пра ўсіх, многіх. *Дзеці пахварэлі.* **2.** Хварэць некаторы час. *Давялося месяц п.*

**ПАХВАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Тое, што і *пахапаць.*

**ПАХВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* Месца паміж бядром і ніжняй часткай жывата. *Баліць у пахвіне.* ‖ *прым.* **пахві́нны**, -ая, -ае.

**ПАХВО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Час ад часу хварэць, недамагаць. *Бабуля пачала п.*

**ПАХІ́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пакатая паверхня чаго-н., схіл, нахіл. ‖ *прым.* **пахі́льны**, -ая, -ае.

**ПАХІЛІ́ЦЦА**, -хілю́ся, -хі́лішся, -хі́ліцца; *зак.* **1.** Нахіліцца, нагнуцца. *П. над ложкам хворага.* **2.** Пакасіцца, нахіліцца ўбок. *Слуп пахіліўся.*

**ПАХІЛІ́ЦЬ**, -хілю́, -хі́ліш, -хі́ліць; -хі́лены; *зак., каго-што.* Нахіліць, нагнуць. *П. слуп. П. галаву.* ‖ *незак.* **пахіля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПАХІ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які пахіліўся, пакасіўся. *Пахілая бяроза. Пахілая будыніна.* **2.** Згорблены (пра чалавека). **3.** Які паступова паніжаецца, пакаты. *П. ўзгорак.* ‖ *наз.* **пахі́ласць**, -і, *ж.*

**ПАХІСНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Страціўшы раўнавагу, хіснуцца. *П. ад удару.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Стаць менш устойлівым, менш трывалым; сапсавацца, пагоршыцца. *Справы яго пахіснуліся. Здароўе пахіснулася.* **3.** Запанікаваць, завагацца. *Вораг пахіснуўся і пачаў адступаць.*

**ПАХІСНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -хі́снуты; *зак., каго-што.* **1.** Хіснуўшы, нахіліць. *П. слуп. Чалавека пахіснула* (безас.) *ад слабасці.* **2.** *перан.* Зрабіць менш устойлівым, менш трывалым; выклікаць няўпэўненасць у чым-н. *П. чый-н. аўтарытэт. Гора нікога не пахіснула. П. сваё здароўе.*

**ПАХІ́СТВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Хістацца злёгку, час ад часу. *Ісці пахістваючыся. Чарот пахістваўся ад ветру.*

**ПАХІ́СТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што* або *чым.* Злёгку, час ад часу хістаць. *Вецер пахістваў дрэвы.*

**ПА́ХКІ**, -ая, -ае (разм.). Які мае моцны пах, пахучы. *П. хлеб. Пахкае сена.* ‖ *наз.* **па́хкасць**, -і, *ж.*

**ПАХМЕ́ЛКА** *гл.* пахмяліцца.

**ПАХМЕ́ЛЛЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* пахмяліцца. **2.** Дрэннае самаадчуванне пасля моцнай выпіўкі, п'янства. *Баліць галава з пахмелля.* ◊ **Пахмелле ад чужога вяселля** (разм.) — непрыемнасці з-за другіх, па чужой віне. ‖ *прым.* **пахме́льны**, -ая, -ае.

**ПАХМУРНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* і *незак.* **1.** *зак.* Стаць хмурным, хмурнейшым. *Пасля гэтых слоў ён адразу пахмурнеў.* **2.** *незак.* Станавіцца пахмурным, хмурнець. *Чалавек усё больш пахмурнеў.*

**ПАХМУ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Змрочны, хмарны, з небам, пакрытым воблакамі. *Пахмурнае надвор'е. Сёння пахмурна* (у знач. вык.). **2.** *перан.* Змрочны, невясёлы. *П. настрой. П. выгляд.* ‖ *наз.* **пахму́рнасць**, -і, *ж.*

**ПАХМЯЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -е́е; -е́ем, -е́еце, -е́юць; *зак.* Захмялець — пра ўсіх, многіх.

**ПАХМЯЛІ́ЦЦА**, -мялю́ся, -ме́лішся, -ме́ліцца; *зак.* Выпіць спіртнога на другі дзень пасля моцнай выпіўкі. ‖ *незак.* **пахмяля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **пахме́лле**, -я, *н.* (разм.) *і* **пахме́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* (разм.).

**ПА́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; пах, -хла; -ні; *незак.* **1.** Вылучаць які-н. пах. *Добра п. П. мятай. Грошы не пахнуць* (пра непатрабавальныя адносіны да таго, якім шляхам атрыманы грошы; неадабр.). **2.** *перан.*, звычайна *безас., чым.* Адчувацца, сведчыць пра набліжэнне чаго-н., магчымасць чаго-н. (разм.). *Пахне нядобрым. Пахне порахам* (пра набліжэнне вайны).

**ПАХО́Д**¹, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Перамяшчэнне войск або флоту з якой-н. мэтай. *Полк выступіў у п.* **2.** Ваенныя дзеянні супраць каго-н. *Крыжовыя паходы.* **3.** Арганізаванае падарожжа ці далёкая прагулка, а таксама наогул сумесны рух групы асоб з пэўнымі мэтамі, заданнямі. *Турысцкі п. П. па месцах баявой славы.* **4.** Арганізаванае або загадзя намечанае наведванне чаго-н. *Калектыўны п. у кіно.* ‖ *прым.* **пахо́дны**, -ая, -ае (да 1—3 знач.). *Ісці паходным маршам.*

**ПАХО́Д**², -у, *М* -дзе, *м.* Невялікі лішак у вазе. *Тры кілаграмы з паходам.*

**ПАХО́ДЖАННЕ**, -я, *н.* **1.** Прыналежнасць па нараджэнні да якой-н. нацыі, класа, саслоўя. *Беларус па паходжанні. Сацыяльнае п.* **2.** Узнікненне, паяўленне. *П. жыцця на зямлі.*

**ПАХО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* **1.** *з каго-чаго.* Належаць па нараджэнні да якога-н. класа, нацыі, саслоўя. *Ён паходзіць з рабочых.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *ад каго-чаго.* Узнікаць, утварацца ад чаго-н. *Назва горада паходзіць ад ракі.* **3.** *на каго-што.* Быць падобным да каго-, чаго-н. *П. на бацьку.*

**ПАХО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Хада, манера хадзіць. *Ісці стомленай паходкай. Ваенная п.*

**ПАХО́ДНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* (уст.). Пераносная свяцільня ў выглядзе ліхтара на доўгай палцы або наматанага на канец палкі прасмоленага пакулля; факел.

**ПАХРАБРЭ́ЦЬ** *гл.* храбрэць.

**ПАХРА́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Храпці злёгку, час ад часу. *П. у сне.*

**ПАХРЫСТО́САВАЦЦА** *гл.* хрыстосавацца.

**ПАХРЫСЦІ́ЦЦА** *гл.* хрысціцца.

**ПАХРЫСЦІ́ЦЬ** *гл.* хрысціць.

**ПАХУДЗЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які пахудзеў. *П. твар.*

**ПАХУДЗЕ́ННЕ** *гл.* худзець.

**ПАХУДЗЕ́ЦЬ** *гл.* худзець.

**ПАХУ́КАЦЬ** *гл.* хукаць.

**ПАХУ́ЧЫ**, -ая, -ае. Духмяны, з моцным прыемным пахам. *Пахучае мыла.* ‖ *наз.* **паху́часць**, -і, *ж.*

**ПАЦАЛАВА́ЦЦА** *гл.* цалавацца.

**ПАЦАЛАВА́ЦЬ** *гл.* цалаваць.

**ПАЦАЛУ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Дакрананне вуснамі да каго-, чаго-н. як праяўленне любові, ласкі і пад. *Гарачы п. Працягнуць руку для пацалунка.*

**ПАЦА́ПАЦЦА** *гл.* цапацца.

**ПАЦВЕ́ЛЬВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Падражнівацца з кім-н., пасмейвацца з каго-н. *П. з хлопца.*

**ПАЦВЕ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго, з каго.* Злёгку дражніць, пасмейвацца з каго-н. *П. палачкай вужа. П. з бяскрыўднай дзяўчынкі.*

**ПАЦВЕ́РДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Прызнаць правільнасць чаго-н., засведчыць, пераканаць у верагоднасці чаго-н. *П. думку прыкладам. Пацвердзі, што я не абманваю.* ‖ *незак.* **пацвярджа́ць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пацвярджэ́нне**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.*; *прым.* **пацвярджа́льны**, -ая, -ае.

**ПАЦЕ́ПВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Час ад часу злёгку сцепацца, рабіць сутаргавыя рухі. *П. ад холаду.*

**ПАЦЕ́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., чым.* Час ад часу злёгку сцепаць, рабіць сутаргавыя рухі (звычайна плячамі). *Зябка п. плячамі.* ‖ *наз.* **паце́пванне**, -я, *н.*

**ПА́ЦЕРКІ**, -рак, *адз.* па́церка, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* **1.** Тое, што і *каралі.* **2.** Апрацаваныя кавалачкі бурштыну, каралаў, шкла, каменю і інш. з дзірачкамі пасярэдзіне для працягвання ніткі, таксама ўпрыгожанне ў выглядзе нанізаных на нітку шарыкаў ці дробных прадметаў іншай формы, якое надзяваецца на шыю.

**ПАЦЕ́РЦІ**, патру́, патрэ́ш, патрэ́; патро́м, патраце́, патру́ць; пацёр, -цёрла; патры́; пацёрты; *зак., што.* **1.** Падушыць, памяць. *П. ягады.* **2.** *безас.* Прыцiснуўшы, нанесці пашкоджанні каму-н. *Яму пацерла бакі.* **3.** Правесці некаторы час, націраючы, расціраючы што-н. *П. скроні спіртам.*

**ПАЦЕ́РЦІСЯ** *гл.* церціся.

**ПА́ЦЕРЫ**, -аў. Малітва. *Шаптаць п.*

**ПАЦЕ́ХА**, -і, *ДМ* -цесе, *мн.* -і, -цех, *ж.* Забава, весялосць. *Усім на пацеху. Зрабіць што-н. для пацехі.*

**ПАЦЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Пакрывацца потам. *П. ад гарачыні.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пакрывацца вільготным налётам. *Сцяна пацее ад вільгаці.* **3.** *перан.* Працаваць над чым-н. доўга, упарта (разм.). *П. над праектам.* ‖ *зак.* **спаце́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 1 і 2 знач.), **упаце́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 1 знач.), **запаце́ць**, -е́е (да 2 знач.) *і* **адпаце́ць**, -е́е (да 2 знач.).

**ПАЦЕ́ШНЫ**, -ая, -ае. Смешны, забаўны. *Пацешнае дзіця. Пацешна* (прысл.) *капіраваць каго-н.*

**ПАЦЕ́ШЫЦЦА** *гл.* цешыцца.

**ПАЦЕ́ШЫЦЬ** *гл.* цешыць.

**ПАЦЁРТАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* пацёрты. **2.** Пашкоджанне, раздражненне якой-н. часткі цела ад трэння. *Пацёртасці на шыі каня.*

**ПАЦЁРТЫ**, -ая, -ае. **1.** Паношаны, са слядамі доўгага карыстання. *Пацёртае паліто.* **2.** *перан.* Пра твар, выгляд: змардаваны, нездаровы і нясвежы (разм.). *У цябе п. выгляд.* ‖ *наз.* **пацёртасць**, -і, *ж.*

**ПАЦІКА́ВІЦЦА**, -ка́ўлюся, -ка́вішся, -ка́віцца; *зак., чым і з дадан. сказам.* Праявіць цікавасць да каго-, чаго-н. *П. поспехамі знаёмага. Ён пацікавіўся, як мы жывём.*

**ПАЦІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што.* Церці злёгку, час ад часу. *П. лоб. П. рукі* (таксама перан.: адчуваць задавальненне, нядобрую радасць з прычыны чаго-н.; разм.).

**ПАЦІ́СНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* **1.** Пасунуўшыся, сесці або стаць цясней. *Мы пацісналіся, каб села пажылая жанчына.* **2.** Пайсці, ціснучыся, пераадольваючы перашкоды. *П. з рэчамі да выхаду.*

**ПАЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *што.* Злёгку сціснуць. *П. руку каму-н.* (у знак прывітання). *П. плячамі* (у знак неразумення, здзіўлення крыху прыпадняць плечы). **2.** *што і на што.* Налегчы цяжарам; націснуць. *П. кнопку званка. П. на дзверы плячом.* **3.** Увабрацца ў сілу, памацнець. *К. вечару паціснуў мароз.* ‖ *незак.* **паціска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 і 3 знач.). ‖ *наз.* **по́ціск**, -у, *м.* (да 1 знач.).

**ПАЦІ́ХУ**, *прысл.* **1.** Нягучна, ціха; злёгку, асцярожна, стараючыся не рабіць шуму. *Гутарыць п. П. шумеў бор. П. прайсці ў суседні пакой.* **2.** Павольна, не спяшаючыся; мала-памалу. *Хадзіць п. Мы самі п. ўсё тут зробім.*

**ПАЦУ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Шкодны грызун сямейства мышападобных з доўгім хвастом. ‖ *прым.* **пацучы́ны**, -ая, -ае.

**ПАЦУЧАНЯ́** *і* **ПАЦУЧАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня пацука.

**ПАЦЫЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Хворы ў адносінах да ўрача, у якога ён лечыцца. *Прыняць пацыентаў.* ‖ *ж.* **пацые́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПАЦЫРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* **1.** Зацыраваць усё, многае. *П. усе шкарпэткі.* **2.** *і без дап.* Цыраваць некаторы час.

**ПАЦЫРЫМО́НІЦЦА** *гл.* цырымоніцца.

**ПАЦЫФІ́ЗМ**, -у, *м.* Палітычная плынь і светапогляд, якія асуджаюць любыя войны. ‖ *прым.* **пацыфі́сцкі**, -ая, -ае.

**ПАЦЫФІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік пацыфізму. ‖ *ж.* **пацыфі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **пацыфі́сцкі**, -ая, -ае.

**ПАЦЭ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *зак.* **1.** Трапіць у цэль. **2.** Патрапіць зрабіць. *Доўга не магла п., каб зашпіліць верхні гузік.*

**ПАЦЯГА́ЦЦА** *гл.* цягацца.

**ПАЦЯГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Перамясціць, перанесці куды-н. усё, многае. *П. жэрдзе.* **2.** *каго-што і без дап.* Цягаць некаторы час. *П. па судах.* **3.** *каго-што.* Пакрасці, прысвоіць сабе ўсё, многае. *Яны снапы ў мяне з азярода пацягалі.* **4.** *каго-што за што.* Патузаць, паторгаць за што-н. *П. за косы.*

**ПАЦЯГНУ́ЦЦА**, -цягну́ся, -ця́гнешся, -ця́гнецца; -цягні́ся; *зак.* **1.** Выпрастаць стомленыя ў аднастайнай паставе канечнасці, стан. *П. спрасонку.* **2.** Пачаць цягнуцца (у 1—8 і 10 знач.).

**ПАЦЯГНУ́ЦЬ**, -цягну́, -ця́гнеш, -ця́гне; -цягні́; -ця́гнуты; *зак.* **1.** *гл.* цягнуць. **2.** *што.* Пакрыць паверхню чаго-н. тонкім слоем якога-н. рэчыва або абшыць паверхню вопраткі якім-н. матэрыялам. *П. падлогу лакам. П. кажух сукном.* **3.** Тое, што і *заважыць.* *Шчупак пацягнуў пяць кілаграмаў.* **4.** *перан., што.* Змагчы выканаць, зрабіць што-н. (разм.). *Ён гэтай работы не пацягне.* **5.** Пачаць цягнуць (у 1—9, 12—16 знач.).

**ПАЦЯЖЭ́ЦЬ** *гл.* цяжэць.

**ПАЦЯЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -це́ляцца; *зак.* Ацяліцца — пра ўсіх, многіх. *Усе каровы пацяліліся.*

**ПАЦЯМНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які пацямнеў, стаў цёмным. *Пацямнелая ад часу агароджа.*

**ПАЦЯМНЕ́ННЕ** *гл.* цямнець.

**ПАЦЯМНЕ́ЦЬ** *гл.* цямнець.

**ПАЦЯПЛЕ́ННЕ** *гл.* цяплець.

**ПАЦЯПЛЕ́ЦЬ** *гл.* цяплець.

**ПАЦЯРО́БКІ**, -аў. Адходы, якія застаюцца пасля ачысткі чаго-н. *Бульбяныя п.* ‖ *прым.* **пацяро́бкавы**, -ая, -ае.

**ПАЦЯРПЕ́ЦЬ**, -цярплю́, -цярпі́ш, -цярпі́ць; -цярпі́м, -церпіцé, -цярпя́ць; -цярпі́; *зак.* **1.** *гл.* цярпець. **2.** Цярпліва перанесці што-н. на працягу якога-н. часу. *Хацелася есці, але прыйшлося п.* **3.** *каго-што* і *чаго з адмоўем.* Дапусціць, змірыцца з кім-, чым-н. *Не п. несправядлівасці.*

**ПАЦЯРУ́ХА**, -і, *ДМ* -ру́се, *ж.* Пацёртае сена, салома, тытунь і пад., а таксама дробныя сыпкія рэшткі чаго-н. *Канюшынная п.* ‖ *прым.* **пацяру́шны**, -ая, -ае.

**ПАЦЯСНІ́ЦЦА**, -цяснюся, -цясні́шся, -цясні́цца; -цяснíмся, -цесніцéся, -цясня́цца; *зак.* **1.** Тое, што і *пацiснуцца* (у 1 знач.). *Пасажыры пацясніліся, каб пасадзіць дзяцей.* **2.** Пачаць жыць у цеснаце, пасяліўшы да сябе каго-н. ‖ *незак.* **пацясня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПАЦЯСНІ́ЦЬ**, -цясню́, -цясні́ш, -цясні́ць; -цяснíм, -цесніцé, -цясня́ць; -цясне́ны; *зак.* **1.** *гл.* цясніць. **2.** *каго-што.* Сцясніць, прымусіць цясней стаць, сесці, размясціцца. *Дазвольце вас крыху п.* ‖ *незак.* **пацясня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 2 знач.).

**ПАЦЯЧЫ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цячэ́, -цяку́ць; пацёк, -цякла́, -ло́; *зак.* Пачаць цячы. *Пацяклі ручаі. Дах пацёк. Пацякла павольная мелодыя.*

**ПАЦЯША́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *чым* і *без дап.* Забаўляцца, весяліцца. *Вакол было прыгожа, дзеці пацяшаліся. П. рыфмамі.* **2.** *з каго-чаго.* Здзекавацца, кпіць з каго-, чаго-н. *П. з дзівака.*

**ПАЦЯША́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго (што).* Весяліць, забаўляць. *П. дзяцей. П. публіку жартамі.*

**ПА́ЧАК**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* Некалькі аднародных прадметаў, складзеных, спакаваных разам. *П. пячэння. П. папярос.* ‖ *прым.* **па́чкавы**, -ая, -ае.

**ПАЧАКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго (што)* і *каго-чаго.* **1.** Правесці некаторы час у чаканні каго-, чаго-н. *П. добрага надвор'я. Пачакай, усё ўладзіцца.* **2.** Тое, што і *памарудзіць.* ◊ **Пачакай(це)!** (разм.) — выражэнне перасцярогі, пагрозы. *Ах, свавольнікі, пачакайце, я зараз з вамі разбяруся!*

**ПАЧАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што.* Дакрануцца некалькі разоў, пакратаць. *П. вусы.*

**ПАЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю́, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак., што.* **1.** Павесіць, прычапіць. *П. сумку на крук.* **2.** Надзець, прымацаваўшы, прывязаўшы і пад. (разм.). *П. павязку на рукаў.*

**ПАЧАПЛЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -я́ецца; -я́емся, -я́ецеся, -я́юцца; *зак.* Учапіцца, зачапіцца — пра ўсіх, многіх або пра ўсё, многае.

**ПАЧАПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Начапіць, прычапіць усё, многае. *П. шторы на дзверы.*

**ПАЧАРГО́ВЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца па чарзе, адзін за адным. *Заходзіць куды-н. пачаргова* (прысл.).

**ПАЧАРНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў чорным, цёмным. *Пачарнелыя сцены.*

**ПАЧАРНЕ́ЦЬ** *гл.* чарнець.

**ПАЧАРСЦВЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** *гл.* чарсцвець. **2.** Стаць чэрствым — пра ўсё, многае. *Усе булкі пачарсцвелі.*

**ПАЧАСА́ЦЦА** *гл.* часацца.

**ПАЧАСА́ЦЬ** *гл.* часаць[1].

**ПА́ЧАСКІ**, -аў. Рэшткі, адходы пры часанні лёну, канапель і пад. *Пяньковыя п.* ‖ *прым.* **па́часкавы**, -ая, -ае.

**ПАЧАСО́ВЫ**, -ая, -ае. Які вылічваецца або аплачваецца з разліку затрачанага часу. *Пачасовая аплата.*

**ПА́ЧАССЕ**, -я, *н., зб.* Тое, што і *пачаскі.* ‖ *прым.* **па́часны**, -ая, -ае.

**ПАЧАСТАВА́ЦЦА** *гл.* частавацца.

**ПАЧАСТАВА́ЦЬ** *гл.* частаваць.

**ПАЧАСТУ́НАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Ежа, пітво, якімі частуюць каго-н. *Нагатаваць многа пачастункаў.*

**ПАЧАСЦІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ці́цца; *зак.* (разм.). Стаць больш частым (у 3 і 4 знач.). *Стукі малатка пачасціліся. Пульс хворага пачасціўся.* ‖ *незак.* **пачашча́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **пачашчэ́нне**, -я, *н.*

**ПАЧАСЦІ́ЦЬ**, -чашчу́, -часці́ш, -часці́ць; -часці́м, -часціцé, -часця́ць, -ча́шчаны; *зак., што.* Зрабіць больш частым. *П. наведванні. П. крок.* ‖ *незак.* **пачашча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПАЧА́ТАК**[1], -тку, *м.* **1.** Першы момант ці першыя моманты якога-н. дзеяння, з'явы. *П. жніва. У пачатку восені. П. навучальнага года. Пакласці* або *даць п. чаму-н.* (пачаць). **2.** Зыходны пункт, кропка. *У пачатку вёскі. Весці свой пачатак ад чаго-н.* (паходзіць ад чаго-н.). *Браць п.* (пачынацца). **3.** Першакрыніца, аснова, асноўная прычына. *Арганізуючы п. Стрымліваючы п.* **4.** *мн.* -ткі, -ткаў. Асноўныя палажэнні, прынцыпы. *Пачаткі дзяржаўнасці.* **5.** *мн.* Спосабы, метады ажыццяўлення чаго-н. *На калектыўных пачатках. На грамадскіх пачатках* (бязвыплатна — пра якую-н. работу, дзейнасць каго-н.).

**ПАЧА́ТАК**[2], -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* (спец.). Суквецце з патоўшчанай воссю, на якой шчыльна размешчаны кветкі, плады. *Кукурузны п.* ‖ *прым.* **пача́тачны**, -ая, -ае.

**ПАЧАТКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца ў пачатку чаго-н., з'яўляецца пачаткам чаго-н. *Пачатковае слова. Пачатковая стадыя развіцця.* **2.** Дадзены не ў поўным аб'ёме, ніжэйшы. *Пачатковая адукацыя. Пачатковая школа.*

**ПАЧА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чнéцца; *зак.* Узнікнуць, пачаць адбывацца, наступіць. *Праца пачалася. Пачалося лета.* ‖ *незак.* **пачына́цца**, -а́ецца.

**ПАЧА́ЦЬ**, -чну́, -чне́ш, -чне́; -чнём, -чняцé, -чну́ць; -ча́ў, -чала́, -ло́; -чні́; -ча́ты; *зак.* **1.** *што* і *з інф.* Прыступіць да якога-н. дзеяння. *П. будаўніцтва дома. П. будаваць.* **2.** *(1 і 2 ас. не ўжыв.), з інф.* Праявіць першыя прыметы якога-н. дзеяння або стану. *Лякарства пачало дзейнічаць. Пачало цямнець.* **3.** *што чым* або *з каго-што.* Узяцца за што-н. у першую чаргу. *П. прамову прывітаннем* або *з прывітання.* **4.** *што.* Прыступіць да спажывання чаго-н. *П. новую буханку хлеба.* ‖ *незак.* **пачына́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ◊ **Пачынаючы з**, *прыназ. з Р* — тое, што і «з» (у 1 знач.). *Пачынаючы з гэтай старонкі.*

**ПАЧВА́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ва́р, *ж.* **1.** Казачная, страшная істота, звычайна вялікіх памераў. *Валасатая п.* **2.** Пра надта непрыгожага чалавека. **3.** *перан.* Пра жорсткага, амаральнага чалавека, вырадка.

**ПАЧВА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Вельмі непрыгожы, такі, як у пачвары (у 1 знач.). *П. твар.* **2.** *перан.* Незвычайны, выключны па сваіх адмоўных якасцях. *Пачварная з'ява.* ‖ *наз.* **пачва́рнасць**, -і, *ж.*

**ПА́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (спец.). У класічным балеце: кароткая, пышная, шматслойная спадніца балерыны.

**ПАЧКАВА́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Спосаб бясполага (вегетатыўнага) размнажэння жывёл і раслін.

**ПАЧКАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ку́ецца; *незак.* Размнажацца пачкаваннем.

**ПАЧУ́ХАЦЦА** *гл.* чухацца.

**ПАЧУ́ХАЦЬ** *гл.* чухаць.

**ПАЧУ́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што* (разм.). Чухаць час ад часу. *П. патыліцу.* ‖ *звар.* **пачу́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПАЧУ́ЦЦА** *гл.* чуцца.

**ПАЧУ́ЦЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Здольнасць адчуваць, успрымаць з'явы аб'ектыўнай рэальнасці. *Органы пачуццяў. П. зроку. П. слыху. П. смаку. П. нюху. П. дотыку.*

**ПАЧУ́ЦЦЕВЫ**, -ая, -ае. Які ажыццяўляецца або ўспрымаецца органамі пачуццяў. *Пачуццевае ўспрыманне.* ‖ *наз.* **пачу́ццевасць**, -і, *ж.*

**ПАЧУЦЦЁ**, -я́, *мн.* пачу́цці, -яў, *н.* **1.** *чаго* і *якое.* Здольнасць усведамляць, перажываць, разумець што-н. на аснове адчуванняў, уражанняў. *П. гордасці за сваю радзіму. П. уласнай годнасці. П. гумару. П. новага.* **2.** Каханне, прыхільнасць да каго-н. *Вялікае п. Бацькоўскае п. да дзяцей.*

**ПАЧУЦЦЁВЫ**, -ая, -ае. **1.** З моцна выражанай палавой цягай. *Пачуццёвая асалода.* **2.** Схільны да задавальнення цялесных, фізічных пачуццяў. *П. чалавек.* ‖ *наз.* **пачуццёвасць**, -і, *ж.*

**ПАЧУ́ЦЬ** *гл.* чуць[1].

**ПАЧЦІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Паважны, шаноўны, добразычлівы; які выказвае павагу, пашану да каго-н. *П. чалавек. П. паклон. Пачціва* (прысл.) *прывітацца.* **2.** *перан.* Вялікі, значны (разм.). *На пачцівай адлегласці.* ‖ *наз.* **пачці́васць**, -і, *ж.* (да 1 знач.). *Праяўляць п. да каго-н.*

**ПАЧЫ́М**, *прысл.* (разм.) Колькі каштуе, па якой цане. *П. тварог? П. яблыкі?*

**ПАЧЫ́Н**, -у, *м.* **1.** Ініцыятыва, пачынанне якой-н. справы. *Падтрымаць п.*

*наватараў. Узяць на сябе п. у чым-н.* (праявіць ініцыятыву). **2.** Пачатак якой-н. справы (разм.).

**ПАЧЫНА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто пачынае што-н., заснавальнік. *Пачынальнікі новай літаратуры.* ‖ *ж.* **пачына́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПАЧЫНА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (кніжн.). Пачатая кім-н. справа. *Цудоўнае п. Падтрымаць п. перадавікоў.*

**ПАЧЫНА́ЦЦА** *гл.* пачацца.

**ПАЧЫНА́ЦЬ** *гл.* пачаць.

**ПАЧЫНА́ЮЧЫ**, -ая, -ае. Які нядаўна распачаў якую-н. дзейнасць, які-н. род заняткаў. *П. паэт. Дапаможнік для пачынаючых* (наз.).

**ПАЧЫРВАНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які пачырванеў, стаў чырвоным. *П. небасхіл.*

**ПАЧЫРВАНЕ́ЦЬ** *гл.* чырванець.

**ПАЧЫ́СЦІЦЦА** *гл.* чысціцца.

**ПАЧЫ́СЦІЦЬ** *гл.* чысціць.

**ПАЧЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *што* і *без дап.* Правесці некаторы час, чытаючы што-н. *П. кніжку. Думаю вечарам п.* **2.** *што.* Прачытаць. *Раю п. гэты раман.*

**ПАЧЫ́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што* і *без дап.* (разм.). *Чытаць патроху, час ад часу.*

**ПАЧЭ́ЗНУЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -э́зне; -э́з, -зла; *зак.* Змарнець, звянуць, знясілець — пра ўсіх, многіх. *Высадкі пачэзлі.*

**ПАЧЭ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які карыстаецца павагай, пашанай, ганаровы. *Пачэсныя госці.* **2.** Які робіць гонар каму-н., не парушае годнасці каго-, чаго-н. *П. абавязак. Пачэснае месца.* ‖ *наз.* **пачэ́снасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПА́ША**, -ы, *ж.* Месца, дзе пасецца жывёла, выпас. *Выгнаць кароў на пашу.* ‖ *прым.* **па́шавы**, -ая, -ае. *Пашавыя ўгоддзі.*

**ПАШАБА́ШЫЦЬ** *гл.* шабашыць.

**ПАШАВЯЛІ́ЦЦА** *гл.* шавяліцца.

**ПАШАВЯЛІ́ЦЬ** *гл.* шавяліць.

**ПАШАЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. адз. не ўжыв.*). Ашалець, стаць шалёным — пра ўсіх, многіх. *Што вы пашалелі, рабіць такое!* **2.** Пабыць некаторы час у стане крайняга раздражнення (разм.).

**ПАША́НА**, -ы, *ж.* Павага, якая аказваецца каму-н. грамадствам, людзьмі. *Быць у пашане. Адносіцца да каго-н. з пашанай.*

**ПАШАНАВА́ЦЦА**, -ну́юся, -ну́ешся, -ну́ецца; -ну́йся; *зак.* Праявіць некаторую асцярожнасць, аднесціся да сябе клапатліва. *Пасля хваробы трэба п.*

**ПАШАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; *зак., каго-што.* **1.** Аднесціся клапатліва да каго-, чаго-н. *П. сваё здароўе.* **2.** Аднесціся з пашанай, павагай да каго-, чаго-н. *П. аўтарытэт. Шануй людзей, то і людзі цябе пашануюць* (прыказка).

**ПАШАНЦАВА́ЦЬ** *гл.* шанцаваць.

**ПАШАРАВА́ЦЬ** *гл.* шараваць.

**ПАША́РПАЦЦА** *гл.* шарпацца.

**ПАША́РПАЦЬ** *гл.* шарпаць.

**ПАШАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў шэрым або больш шэрым. *П. снег.*

**ПАШАРЭ́ЦЬ** *гл.* шарэць.

**ПАШКАДАВА́ЦЬ** *гл.* шкадаваць.

**ПАШКЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; -лёны; *зак., што.* Зашкліць усё, многае. *П. вокны.*

**ПАШКО́ДЖАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* пашкодзіць. **2.** *мн.* -і, -яў. Пашкоджанае месца, паломка. *Ліквідаваць п.*

**ПАШКО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *гл.* шкодзіць. **2.** *што.* Сапсаваць (паламаць, параніць і пад.). *П. кабель. П. руку.* ‖ *незак.* **пашко́джваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.). ‖ *наз.* **пашко́джанне**, -я, *н.*

**ПАШКУМАТА́ЦЬ** *гл.* шкуматаць.

**ПАШЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* (разм.). Станавіцца пошлым. ‖ *зак.* **апашле́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**ПАШЛЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Чалавек, які гаворыць або робіць пошласці. ‖ *ж.* **пашля́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **пашля́цкі**, -ая, -ае.

**ПАШЛЯ́ЦІНА**, -ы, *ж.* (разм.). Што-н. вельмі пошлае, пошласць. *Пляце розную пашляціну.*

**ПАШМАТА́ЦЬ** *гл.* шматаць.

**ПАШМО́РГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што* і *чым* (разм.). Шмаргануць некалькі разоў. *П. носам.* ‖ *незак.* **пашмо́ргваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПАШНА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак.* (разм.). Шнарыць некаторы час. *П. па кішэнях.*

**ПАШНЫ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак.* (разм.). Тое, што і *пашнарыць.*

**ПА́ШПАРТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Афіцыйны дакумент устаноўленага ўзору, які сведчыць асобу яго ўладальніка. *Замежны п.* **2.** Рэгістрацыйны дакумент машыны, будынка, апарата, прадмета гаспадарчага абсталявання і пад. *П. кватэры. П. тэлевізара. П. завода.* ‖ *прым.* **па́шпартны**, -ая, -ае.

**ПАШПАРТЫЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Увядзенне сістэмы пашпартоў, забеспячэнне пашпартамі.

**ПАШПАРТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Службовая асоба, якая выдае або прапісвае пашпарты (у 1 знач.). ‖ *ж.* **пашпарты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПАШПАЦЫРАВА́ЦЬ** *гл.* шпацыраваць.

**ПАШТАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Паштовы работнік.

**ПАШТАЛЬЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Разносчык пошты, карэспандэнцыі па адрасах. ‖ *ж.* **паштальёнка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак (разм.). ‖ *прым.* **паштальёнскі**, -ая, -ае.

**ПАШТА́МТ**, -а, *М* -мце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Галоўная паштовая ўстанова горада. ‖ *прым.* **пашта́мцкі**, -ая, -ае.

**ПАШТМА́ЙСТАР**, -тра, *мн.* -тры, -траў, *м.* (уст.). Кіраўнік паштовай канторы. ‖ *прым.* **паштма́йстарскі**, -ая, -ае.

**ПАШТО́ВЫ** *гл.* пошта.

**ПАШТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -то́вак, *ж.* **1.** Спецыяльная паштовая картка для адкрытага пісьма. **2.** Картка такога фармату з якім-н. малюнкам. *Калекцыя паштовак.*

**ПАШТУ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які вылічваецца за кожную штуку; які выпускаецца асобнымі прадметамі, штукамі. *Паштучная аплата. Прадаваць папяросы паштучна* (прысл.).

**ПАШТЭ́Т**, -у, *М* -тэ́це, *м.* Страва з мясных, рыбных і інш. прадуктаў, працёртых да пастападобнага стану. ‖ *прым.* **паштэ́тны**, -ая, -ае.

**ПАШУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго-што* і *чаго.* Правесці некаторы час у пошуках (да 1 знач.), заняцца пошукамі (у 1 знач.). *П. сабе замену.*

**ПА́ШЧА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Рот звера, рыбы. *Ашчэрыць пашчу.*

**ПАШЧАСЛІ́ВІЦЦА**, -віцца; *безас.; зак., каму* і *без дап.* Тое, што і *пашчасловіць.*

**ПАШЧАСЛІ́ВІЦЬ**, -віць; *безас.; зак., каму* і *без дап.* Пра спрыяльны збег акалічнасцей для каго-н. *Яму пашчаслівіла быць вучнем славутага вучонага.*

**ПАШЧА́СЦІЦЬ** *гл.* шчасціць.

**ПАШЧО́ЎКВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., чым* і *без дап.* Шчоўкаць час ад часу. *П. замком.*

**ПАШЧУ́ПАЦЬ** *гл.* шчупаць.

**ПАШЧЫЛЬНЕ́ЦЬ** *гл.* шчыльнець.

**ПАШЧЫ́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што.* Шчыпаць час ад часу. *П. траву. Мароз пашчыпвае твар і вушы.*

**ПАШЫВА́ЧНЫ** *гл.* пашыць.

**ПАШЫРА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто пашырае што-н. *П. ведаў.* **2.** Прыстасаванне для пашырэння, расшырэння чаго-н. (спец.). ‖ *ж.* **пашыра́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 1 знач.).

**ПАШЫРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для пашырэння, расшырэння чаго-н.

**ПАШЫ́РАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Павялічаны, больш поўны па складзе, змесце. *Пашыранае пасяджэнне. Пашыраная праграма.* **2.** Шырока вядомы, шырока распаўсюджаны. *Пашыраная з'ява. П. прыём.* ‖ *наз.* **пашы́ранасць**, -і, *ж.*

**ПАШЫ́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -рыцца; *зак.* **1.** Стаць больш шырокім, расшырыцца. *Трэшчына пашырылася.* **2.** Павялічыцца ў колькасці, аб'ёме. *Вытворчасць пашырылася.* **3.** Стаць вядомым многім, распаўсюдзіцца. *Чуткі хутка пашырыліся.* **4.** Расшырыць кола свайго дзеяння, ахапіць сабой. *Пашырылася камп'ютарызацыя беларускіх школ.* **5.** *перан.* Стаць больш шырокім па змесце, узмацніцца, паглыбіцца. *Кругагляд пашырыўся.* ‖ *незак.* **пашыра́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **пашырэ́нне**, -я, *н.*

**ПАШЫ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* **1.** Зрабіць больш шырокім, расшырыць. *П. вуліцу.* **2.** Павялічыць у колькасці, у аб'ёме. *П. завод.* **3.** *перан.* Зрабіць больш шырокім па змесце, уз-

мацніць, паглыбіць. *П. кола інтарэсаў.* **4.** Зрабіць шырока вядомым, даступным многім. *П. перадавы вопыт.* **5.** Расшырыць кола дзеяння чаго-н. *П. наватарскі пачын па ўсёй рэспубліцы.* || *незак.* **пашыраць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **пашырэнне**, -я, *н.*

**ПАШЫРЭЦЬ** *гл.* шырэць.

**ПАШЫЦЬ**, -шыю, -шыеш, -шые; -шый; -шыты; *зак., што.* **1.** *і без дап.* Правесці некаторы час, займаючыся шыццём. **2.** Зрабіць, вырабіць шыццём. *П. сукенку.* || *наз.* **пашыў**, -шыву, *м.* (да 2 знач.; спец.) *і* **пашыўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 2 знач.; спец.); *прым.* **пашывачны**, -ая, -ае (паводле 2 знач.; спец.). *Пашывачная арцель.*

**ПАЭЗІЯ**, -і, *ж.* **1.** Славесная мастацкая творчасць, пераважна вершаваная. **2.** Творы, напісаныя вершаванай мовай. *П. і проза. Рамантычная п. Беларуская п.* **3.** *перан., чаго.* Што-н. прыгожае, велічнае, узвышанае, што хвалюе, уздзейнічае на пачуцці. *Краявіды, поўныя паэзіі.* || *прым.* **паэтычны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПАЭМА**, -ы, *мн.* -ы, паэм, *ж.* Вялікі вершаваны лірыка-эпічны твор. *Гераічная п.* || *прым.* **паэмны**, -ая, -ае.

**ПАЭТ**, -а, *М* -эце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтар вершаваных, паэтычных твораў. *Янка Купала — народны беларускі п.* **2.** *перан.* Чалавек, надзелены паэтычнымі адносінамі да свету, жыцця. *П. у душы. П. у сваёй справе.* || *ж.* **паэтэса**, -ы, *мн.* -ы, -тэс.

**ПАЭТЫЗАВАЦЬ**, -зую, -зуеш, -зуе; -зуй; -заваны; *зак.* і *незак., каго-што* (кніжн.). Падаць (падаваць) у паэтычным, узнёслым выглядзе. *П. рэчаіснасць.*

**ПАЭТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Тэорыя літаратуры, вучэнне аб паэтычнай творчасці. **2.** Раздзел тэорыі літаратуры, які вывучае структуру і творчыя прыёмы паэтычных твораў, іх форму і прынцыпы аналізу. **3.** Паэтычная манера, уласцівая дадзенаму паэту, напрамку, эпосе. *П. Янкі Купалы. П. класіцызму.*

**ПАЭТЫЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* паэзія. **2.** Прасякнуты паэзіяй, поўны харастава. *П. малюнак прыроды.* **3.** Мастацкі, творчы. *Паэтычнае чуццё. Паэтычная задума.* **4.** Эмацыянальны, уражлівы. *Паэтычная натура.* || *наз.* **паэтычнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 4 знач.).

**ПАЮСНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **паюсная ікра** — чорная (асятровая, белужыная і сеўружыная) прасаваная салёная ікра, у адрозненне ад зярністай.

**ПАЯВІЦЦА**, -яўлюся, -явішся, -явіцца; *зак.* **1.** Узнікнуць перад вачамі, з'явіцца (у 3 знач.). *На небе паявіўся месяц. Паявіўся незнаёмы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Тое, што і з'явіцца (у 4 знач.). *На твары паявіліся маршчыны.* || *незак.* **паяўляцца**, -яюся, -яешся, -яецца. || *наз.* **паяўленне**, -я, *н.*

**ПАЯВЫ** *гл.* пай.

**ПАЯДАЦЬ** *гл.* паесці.

**ПАЯДЫНАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* **1.** Дуэль; узброеная барацьба двух праціўнікаў у прысутнасці секундантаў як спосаб абароны ўласнай годнасці (уст.). *Выклікаць каго-н. на п.* **2.** Наогул барацьба двух праціўнікаў. *Спартыўны п. Слоўны п.*

**ПАЯЗНЫ** *гл.* поезд.

**ПАЯЛЧАЦЬ** *гл.* ялчаць.

**ПАЯЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Інструмент для паяння.

**ПАЯЛЬНЫ** *гл.* паяць.

**ПАЯЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст, які займаецца паяннем. || *ж.* **паяльшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПАЯРАК**, -рку, *м.* (спец.). Воўна ад першай стрыжкі ягнят. || *прым.* **паяркавы**, -ая, -ае. *П. капялюш.*

**ПАЯРЧЭЦЬ** *гл.* ярчэць.

**ПАЯСНЕЛЫ**, -ая, -ае. Які паяснеў, стаў ясным. *Паяснелыя далі.*

**ПАЯСНЕННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* паясніць. **2.** *мн.* -і, -яў. Заўвага, тлумачэнне, якое робіць што-н. больш зразумелым. *Паясненні да тэксту.*

**ПАЯСНЕЦЬ** *гл.* яснець.

**ПАЯСНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** Частка спіны крыху ніжэй пояса, таліі. *Боль у паясніцы.* **2.** Паласа тканіны, якая прышываецца да верхняй часткі спадніцы, штаноў. *Прышыць паясніцу да спадніцы.* || *прым.* **паясНічны**, -ая, -ае.

**ПАЯСНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нім, -ніцё, -няць; -нёны; *зак., што.* Зрабіць больш ясным, зразумелым, растлумачыць. *П. думку.* || *незак.* **паясняць**, -яю, -яеш, -яе. || *наз.* **паясненне**, -я, *н.*; *прым.* **паясняльны**, -ая, -ае. *П. тэкст.*

**ПАЯСНЫ** *гл.* пояс.

**ПАЯСОК** *гл.* пояс.

**ПАЯЎЛЕННЕ** *гл.* паявіцца.

**ПАЯЎЛЯЦЦА** *гл.* паявіцца.

**ПАЯЦ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Клоўн, блазен (уст.). **2.** *перан.* Пра чалавека, які крыўляецца, вядзе сябе, як клоўн.

**ПАЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; -яны; *незак., што.* Апрацоўваць што-н. нагрэтым да вадкага стану металам, металічным сплавам для злучэння, змацавання. *П. вядро.* || *наз.* **паянне**, -я, *н. і* **пайка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.* (спец.). || *прым.* **паяльны**, -ая, -ае. *Паяльная лямпа* (пераносная награвальная гарэлка для паяння, распайвання).

**ПЕВЕНЬ**, пеўня, *мн.* пеўні, пеўняў, *м.* **1.** Самец курыцы. **2.** *перан.* Пра задзірыстага чалавека, забіяку (разм.). ◊ **Да пеўняў** (разм.) — да світання (праседзець). **Да пеўняў** або **з пеўнямі** (разм.) — вельмі рана, на досвітку (устаць, падняцца). **Пусціць чырвонага пеўня** (разм.) — учыніць пажар, падпаліць (у 2 знач.). || *памянш.* **пеўнік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.). || *прым.* **пеўневы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *П. крык. П. голас* (таксама перан.; крыклівы, прарэзлівы).

**ПЕД...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач. педагагічны, напр.: *педвучылішча, пэдінстытут, педпрактыка.*

**ПЕДАГАГІЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* педагог *і* педагогіка. **2.** Які адпавядае патрабаванням педагогікі. *П. такт.* || *наз.* **педагагічнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПЕДАГОГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая займаецца выкладчыцкай і выхаваўчай работай. || *прым.* **педагагічны**, -ая, -ае.

**ПЕДАГОГІКА**, -і, *ДМ* -гіцы, *ж.* Навука аб метадах выхавання і навучання. || *прым.* **педагагічны**, -ая, -ае. *П. факультэт* (які рыхтуе спецыялістаў па педагогіцы). *П. інстытут* (які рыхтуе настаўнікаў).

**ПЕДАЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Нажны рычаг у машынах і музычных інструментах. *П. тормаза, раяля. Націснуць на ўсе педалі* (таксама перан.; прыняць усе меры для паскарэння, дасягнення чаго-н.; разм.). || *прым.* **педальны**, -ая, -ае. *Дзіцячая педальная машына.*

**ПЕДАНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто залішне строгі ў выкананні ўсіх фармальных запатрабаванняў (у навуцы, жыцці і пад.). || *ж.* **педантка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **педанцкі**, -ая, -ае.

**ПЕДАНТЫЗМ**, -у, *м.* Паводзіны, уласцівасці педанта. *Дакладны да педантызму.*

**ПЕДАНТЫЧНЫ**, -ая, -ае. Строгі ў выкананні ўсіх запатрабаванняў, надзвычай дакладны і акуратны. *П. чалавек. Педантычныя адносіны. Педантычна* (прысл.) *усё выконваць.* || *наз.* **педантычнасць**, -і, *ж.*

**ПЕДЫКЮР**, -у, *м.* Гігіенічная апрацоўка ступняў ног (чыстка, паліроўка пазногцяў, выдаленне мазалёў). || *прым.* **педыкюрны**, -ая, -ае.

**ПЕДЫЯТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач, спецыяліст па педыятрыі.

**ПЕДЫЯТРЫЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які вывучае анатомію і фізіялогію дзіцячага арганізма, дзіцячыя хваробы, іх лячэнне і прафілактыку. || *прым.* **педыятрычны**, -ая, -ае.

**ПЕДЭРАСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца педэрастыяй.

**ПЕДЭРАСТЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Палавая ненармальнасць: палавыя адносіны мужчыны з мужчынам. || *прым.* **педэрастычны**, -ая, -ае.

**П'ЕДЭСТАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пастамент, падножжа статуі, калоны, вазы і пад. *П. абеліска. Скінуць каго-н. з п'едэстала* (перан.: пазбавіць высокага становішча, аўтарытэту). **2.** Узвышэнне, на якое ўзнімаюцца пераможцы ў спартыўных спаборніцтвах, конкурсах і пад. для атрымання ўзнагароды. || *прым.* **п'едэстальны**, -ая, -ае.

**ПЕЙЗАЖ**, -у *і* -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Агульны выгляд якой-н. мясцовасці, краявід. *Беларускія пейзажы. Нарачанскі п.* **2.** -а. Малюнак краявіду, а таксама апісанне прыроды ў мастацкім творы. *Выстаўка пейзажаў вядомага мастака. Палескія пейзажы ў творах Якуба Коласа.* || *прым.* **пейзажны**, -ая, -ае. *П. жывапіс.*

**ПЕЙЗАЖЫСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак, які малюе пейзажы. || *ж.* **пейзажыстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПЕ́КАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст, які займаецца выпечкай хлеба. ‖ *прым.* **пя-ка́рскі**, -ая, -ае.

**ПЕ́КАРЫХА**, -і, *ДМ* -рысе, *мн.* -і, -рых, *ж.* Жонка пекара.

**ПЕ́КЛА**, -а, *н.* **1.** Паводле рэлігійна-містычных уяўленняў — месца, дзе церпяць вечныя пакуты душы памерлых грэшнікаў. *У чорта ў пекле. Лезці раней за бацьку ў пекла* (прымаўка: паспешліва і недарэчна ўмешвацца ў чые-н. справы, апярэджваючы каго-, што-н.; разм., іран.) **2.** Моцная гарачыня, спёка (разм.). *Не сядзі на самым пекле. Трапіць у самае п.* (перан.: у гарачае месца бою, у разгар злосных спрэчак і пад.). **3.** *перан.* Пра нясцерпныя ўмовы жыцця, іншыя ўмовы, стан. *П. вайны. Душэўнае п.* ‖ *прым.* **пякéльны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПЕ́ЛЕНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Вугал паміж стрэлкай компаса і напрамкам, па якім відаць дадзены прадмет або чуваць дадзены гук.

**ПЕЛЕНГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; *незак., што* (спец.). Вызначаць пеленг чаго-н. *П. радыёстанцыю.* ‖ *зак.* **запеленгава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны. ‖ *наз.* **пеленгава́нне**, -я, *н. і* **пеленга́цыя**, -і, *ж.*

**ПЕЛЕНГА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прылада для пеленгавання. *Аптычны п.*

**ПЕЛІКА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая вадаплаўная птушка з доўгай дзюбай і вялікім мяшком пад ёю. ‖ *прым.* **пеліка́навы**, -ая, -ае *і* **пеліка́наў**, -нава, -навы.

**ПЕЛЬМЕ́НІ**, -яў, *адз.* -ме́нь, -я, *м.* Кулінарны выраб — род маленькіх піражкоў з прэснага цеста, начыненых мясным або рыбным фаршам і адвараных у кіпетні. *Сібірскія п.* ‖ *прым.* **пельме́нны**, -ая, -ае. *П. цэх.*

**ПЕЛЬМЕ́ННАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Сталовая, у якой пельмені з'яўляюцца абавязковай стравай.

**ПЕ́ЛЮШЦЫ**, -аў. Закраіны ў начоўках.

**ПЕ́МЗА**, -ы, *ж.* Лёгкая порыстая вулканічная парода, кавалкі якой ужыв. для паліроўкі, чысткі. ‖ *прым.* **пе́мзавы**, -ая, -ае.

**ПЕ́НА**, -ы, *ж.* **1.** Пузырыстая маса, якая ўтвараецца на паверхні некаторых вадкасцей. *Марская п. Мыльная п. Зняць пену з супу.* **2.** Густая белаватая з пузыркамі сліна, якая выступае на губах пры некаторых хваробах, моцным хваляванні. *З пенай на губах гаварыць* (таксама перан.; у гневе, раз'юшанасці; разм., неадабр.). ‖ *прым.* **пе́нны**, -ая, -ае.

**ПЕНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Падоўжаная скрыначка для ручак, алоўкаў, гумак і пад. *Школьны п.* ‖ *прым.* **пена́льны**, -ая, -ае.

**ПЕНА́ЛЬЦІ**, *нескл., м.* і *н.* У футболе: адзінаццаціметровы штрафны ўдар па варотах.

**ПЕНАПЛА́СТ**, -у, *М* -сце, *м.* Порыстая пластмаса. ‖ *прым.* **пенапла́ставы**, -ая, -ае.

**ПЕНА́ТЫ**, -аў (уст., жарт.). Родны дом, родны кут [ад імя пенатаў — старажытнарымскіх багоў, апекуноў дамашняга ачага]. *Вярнуцца да сваіх пенатаў. Бацькоўскія п.*

**ПЕ́НАЧКА**[1] *гл.* пенка[1].

**ПЕ́НАЧКА**[2], -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Невялічкая пеўчая птушка атрада вераб'іных з бурым апярэннем.

**ПЕ́НІ**, *нескл., н.* У Англіі і некаторых іншых краінах: дробная разменная манета.

**ПЕ́НІСТЫ**, -ая, -ае. З пенай, а таксама які ўтварае пену (у 1 знач.). *П. квас. Пеністае мыла.* ‖ *наз.* **пе́ністасць**, -і, *ж.*

**ПЕ́НІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *незак.* Быць пеністым, пакрывацца пенай. *Пеніцца хвалі.* ‖ *зак.* **успе́ніцца**, -іцца.

**ПЕНІЦЫЛІ́Н**, -у, *м.* Лекавы прэпарат, антыбіётык, прыгатаваны з некаторых відаў грыбковай цвілі або сінтэтычна. *Ін'екцыі пеніцыліну.* ‖ *прым.* **пеніцылі́навы**, -ая, -ае.

**ПЕ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., што.* Рабіць пеністым. *Вецер пеніў хвалі.* ‖ *зак.* **успе́ніць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены.

**ПЕ́НКА**[1], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Плеўка, якая ўтвараецца на некаторых вадкасцях пры іх астыванні. *Здымаць пенкі* (таксама перан.: браць сабе лепшае). ‖ *памянш.* **пе́начка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ПЕ́НКА**[2], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Лёгкі порысты вогнетрывалы матэрыял, які ўжыв. для вырабу люлек для курэння і інш. ‖ *прым.* **пе́нкавы**, -ая, -ае. *Пенкавая люлька.*

**ПЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пена. **2.** Пакрыты пенай, пеністы або напоўнены вадкасцю з вялікай пенай. *Пенная вада. П. вогнетушыцель.*

**ПЕНС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дробная англійская манета; тое што і *пені.*

**ПЕ́НСІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* Грашовае забеспячэнне за выслугу гадоў, па інваліднасці, непрацаздольнасці і пад. *Выйсці на пенсію.* ‖ *прым.* **пенсіённы**, -ая, -ае. *П. ўзрост* (па дасягненні якога належыць пенсія).

**ПЕНСІЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які атрымлівае пенсію. *Персанальны п.* ‖ *ж.* **пенсіяне́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **пенсіяне́рскі**, -ая, -ае.

**ПЕНСНЭ́**, *нескл., н.* Акуляры, якія не маюць завушнікаў і трымаюцца на пераноссі пры дапамозе спружынкі.

**ПЕНЬ**, пня, *мн.* пні, пнёў, *м.* **1.** Астатак спілаванага, ссечанага ці зламанага дрэва, які тырчыць з зямлі. *Карчаваць пні. Быць на пні* (быць не зрэзаным — пра лес, збожжа). *Стаіць як п.* (перан.: нерухома, нічога не разумеючы; разм.). **2.** Адно дрэва будаўнічага матэрыялу. *Купіць сорак пнёў лесу.* **3.** *перан.* Пра бесталковага, абыякавага да ўсяго чалавека (разм., пагард.). *Што гэты п. тут можа зразумець?* ‖ *памянш.* **пянёк**, -нька́, *мн.* -нькі́, -нькóў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **пянёчны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.) і **пнёвы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПЕНЬЮА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У цырульнях: накідка з белай тканіны, якой накрываюць плечы кліентаў пры стрыжцы (спец.). **2.** Лёгкі жаночы ранішні капот[2]. ‖ *прым.* **пеньюа́рны**, -ая, -ае.

**ПЕ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Штраф за невыкананне ў тэрмін устаноўленых законам ці дагаворам абавязацельстваў. *Налічэнне пеняў.*

**ПЕ́ПСІ-КО́ЛА**, -ы, *ж.* Танізуючы прахаладжальны напітак.

**ПЕПСІ́Н**, -у, *м.* (спец.). Неабходнае для стрававання арганічнае рэчыва, якое выпрацоўваецца залозамі страўніка, фермент страўнікавага соку. ‖ *прым.* **пепсі́навы**, -ая, -ае.

**ПЕРА...**, *прыстаўка.* Абазначае: 1) накіраванасць дзеяння з аднаго месца на другое, з аднаго боку на другі, напр.: *перабегчы, перавярнуць, перайсці;* 2) накіраванасць руху цераз што-н., напр.: *перакінуць, пераплысці, пераскочыць;* 3) змену накіраванасці дзеяння, перадачу каму-, чаму-н., напр.: *перадаць* (у спадчыну), *пераслаць;* 4) паўтарэнне дзеяння нанава, напр.: *перарабіць, перачытаць, перашыць;* 5) празмернасць дзеяння, а таксама давядзенне дзеяння да адмоўнага выніку, напр.: *пераесці, перасаліць, перахваліць;* 6) перавагу, першынство ў дзеянні, напр.: *перакрычаць,ператанцаваць, перахітрыць;* 7) паслядоўны ахоп дзеяннем усіх або многіх асоб, прадметаў і вычарпальнасць такога дзеяння, напр.: *пералавіць, перамыць* (увесь посуд), *перапэцкаць* (рукі), *перахварэць* (усімі дзіцячымі хваробамі); 8) падзел чаго-н. папалам, на часткі, напр.: *перакусіць* (нітку); *пераламаць;* 9) запоўненасць дзеяннем якога-н. прамежку часу, напр.: *перазімаваць, пераначаваць;* 10) пераўтварэнне ў што-н. іншае, пераход у іншы стан, від, напр.: *перакласці* (на іншую мову), *перарасці* (сяброўства перарасло ў каханне), *перамяніць* (свой колер); 11) спыненне якога-н. дзеяння, стану, напр.: *перабалець* (перабалела сэрца), *перабрадзіць;* 12) слабае праяўленне дзеяння або яго кароткачасовасць, напр.: *перадыхнуць, перакусіць;* 13) узаемнасць дзеяння (у дзеясловаў з часціцай *-цца*), напр.: *перагаворвацца, перапісвацца.*

**ПЕРААБСТАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ва́ны; *зак., што.* Абсталяваць нанава, па-іншаму. *П. лабараторыю.* ‖ *незак.* **пераабсталёўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пераабсталява́нне**, -я, *н. і* **пераабсталёўванне**, -я, *н.*

**ПЕРААБУ́ЦЬ**, -у́ю, -у́еш, -у́е; -у́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Абуць у іншы абутак. *П. дзяцей у сухое. П. ногі.* **2.** *што.* Змяніць абутак, абуць іначай. *П. боты.* ‖ *незак.* **пераабува́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **пераабу́цца**, -у́юся, -у́ешся, -у́ецца; *незак.* **пераабува́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **пераабува́нне**, -я, *н.*

**ПЕРААБЦЯЖА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго-што.* Празмерна

абцяжарыць. *П. даручэннямі.* ‖ *незак.* **пераабцяжа́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пераабцяжа́рванне**, -я, *н.*

**ПЕРААДЗЕ́ЦЬ**, -ену, -енеш, -ене; -еты; *зак.* **1.** *каго (што).* Адзець каго-н. у іншую вопратку. *П. дзіця.* **2.** *што.* Зняўшы адно, надзець іншае. *П. касцюм.* ‖ *незак.* **пераадзява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **пераадзе́цца**, -енуся, -енешся, -енецца; *незак.* **пераадзява́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **пераадзява́нне**, -я, *н.*

**ПЕРААДО́ЛЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; -ены; *зак.* **1.** *каго-што.* Дабіцца перамогі ў барацьбе, перасіліць. *П. ворага.* **2.** *што.* Справіцца з чым-н., перамагчы ў сабе што-н. *П. перавал. П. страх* (перан.). ‖ *незак.* **пераадо́льваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **пераадо́ленне**, -я, *н.*

**ПЕРААДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна пераадолець. *Лёгка пераадольная перашкода.* ‖ *наз.* **пераадо́льнасць**, -і, *ж.*

**ПЕРААДРАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., што.* Паслаць на новы адрас ці іншай асобе, установе. ‖ *наз.* **пераадрасава́нне**, -я, *н. і* **пераадрасо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. П. падпісных выданняў.*

**ПЕРААПРАНУ́ЦЬ**, -рану́, -ра́неш, -ра́не; -рані́; -ра́нуты; *зак., каго-што.* Тое, што і *пераадзець. П. дзіця. П. сукенку.* ‖ *незак.* **пераапрана́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **пераапрану́цца**, -рану́ся, -ра́нешся, -ра́нецца; -рані́ся; *незак.* **пераапрана́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **параапрана́нне**, -я, *н.*

**ПЕРААРА́ЦЬ**, -ру́, -рэ́ш, -рэ́; -ро́м, -раце́, -ру́ць; -ры́; -ра́ны *і* перавораны; *зак.* **1.** *што.* Узараць занава. *П. бульбянішча.* **2.** *што і чаго.* Узараць усё, многае. *Колькі зямлі перааараў за свой век.* **3.** *што.* Правесці баразну ўпоперак чаго-н. *П. дарогу.* ‖ *незак.* **перавóрваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перавóрванне**, -я, *н.*

**ПЕРААТЭСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., каго (што).* Атэставаць нанава з мэтай праверкі кваліфікацыі, зацвярджэння ў новым званні. *П. навуковых супрацоўнікаў.* ‖ *незак.* **пераатэсто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пераатэста́цыя**, -і, *ж. Прайсці пераатэстацыю.*

**ПЕРААХАЛАДЗІ́ЦЬ**, -ладжу́, -ло́дзіш, -ло́дзіць; -ло́джаны; *зак., каго-што.* Ахаладзіць надта моцна або ніжэй за вызначаную тэмпературу. ‖ *незак.* **перааахало́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **перааахаладзі́цца**, -ладжу́ся, -ло́дзішся, -ло́дзіцца; *незак.* **перааахало́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **перааахаладжэ́нне**, -я, *н.*

**ПЕРААЦАНІ́ЦЬ**, -цаню́, -цэ́ніш, -цэ́ніць; -цэ́нены; *зак., каго-што.* **1.** Ацаніць нанава. *П. тавары.* **2.** Ацаніць занадта высока. *П. свае здольнасці.* ‖ *незак.* **перааацэ́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перааацэ́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж. П. каштоўнасцей* (таксама перан.: карэнны перагляд сваіх поглядаў, думак, ацэнак).

**ПЕРАБАЗІ́РАВАЦЦА**, -руюся, -руешся, -руецца; -руйся; *зак.* Перамясціцца на новую базу. ‖ *наз.* **перабазі́раванне**, -я, *н. і* **перабазіро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* (разм.).

**ПЕРАБАЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак., каго-што.* Перамясціць, перавесці на новую базу. *П. завод на новае месца.* ‖ *наз.* **перабазі́раванне**, -я, *н. і* **перабазіро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* (разм.).

**ПЕРАБАЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ліць; *зак.* Перастаць балець, супакоіцца. *Палец перабалеў.*

**ПЕРАБА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што* (разм.). Пабачыць многа або многіх, зазнаць многае. *Колькі я ўсяго перабачыў за сваё жыццё.*

**ПЕРАБЕ́ГЧЫ**, -бягу́, -бяжы́ш, -бяжы́ць; -бяжы́м, -бежыце́, -бягу́ць; -бе́г, -гла; -бяжы́; *зак.* **1.** *што і праз (цераз) што.* Бягом пераадолець якую-н. прастору. *П. дарогу.* **2.** Бягом перамясціцца на другое месца. *П. з аднаго акопа ў другі.* **3.** *перан.* Перайсці на бок праціўніка (разм.). ‖ *незак.* **перабяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перабе́г**, -у, *м. і* **перабе́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж. Рабіць перабежкі.*

**ПЕРАБЕ́ЖЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто перабег на бок праціўніка. ‖ *ж.* **перабе́жчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПЕРАБЕ́ЛКА** *гл.* перабяліць.

**ПЕРАБЕ́ЛЬВАННЕ** *гл.* перабяліць.

**ПЕРАБЕ́ЛЬВАЦЬ** *гл.* перабяліць.

**ПЕРАБІРА́ЦЦА** *гл.* перабрацца.

**ПЕРАБІРА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што і чым.* Рытмічна кратаць, патузваць што-н. пальцамі. *П. падол фартуха. Нервова п. пальцамі.*

**ПЕРАБІРА́ЦЬ**[2] *гл.* перабраць.

**ПЕРАБІ́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -б'е́цца; *зак.* Разбіцца — пра ўсё, многае. *Перабіліся талеркі.*

**ПЕРАБІ́ЦЦА**[2], -б'ю́ся, -б'е́шся, -б'е́цца; -б'ёмся, -б'яце́ся, -б'ю́цца; *зак.* (разм.). Сяк-так пражыць некаторы час у нястачы. *П. да зарплаты.* ‖ *незак.* **перабіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. *З вады на хлеб,* або *на квас п.* (жыць бедна, галадаючы; разм.).

**ПЕРАБІ́ЦЬ**[1], -б'ю́, -б'е́ш, -б'е́; -б'ём, -б'яце́, -б'ю́ць; -бі́; -бі́ты; *зак.* **1.** *каго (што).* Забіць усіх, многіх. *П. ваўкоў.* **2.** *што.* Разбіць многа чаго-н. *П. посуд.* **3.** *што.* Зламаць, пераламаць. *П. плячо.* **4.** *што.* Узбіць нанава. *П. падушку.* **5.** *што.* Прыбіць іначай або ў іншым месцы. *П. кручок у іншае месца.* ‖ *незак.* **перабіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАБІ́ЦЬ**[2], -б'ю́, -б'е́ш, -б'е́; -б'ём, -б'яце́, -б'ю́ць; -бі́; -бі́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Перарваць чыю-н. гаворку. *П. прамоўцу рэплікай.* **2.** *што.* Парушыць натуральны ход, развіццё якіх-н. падзей, з'яў і пад. *П. сон. П. ход думак.* **3.** *што.* Заглушыць, перасіліць. *П. апетыт* (сапсаваць апетыт). *Дым перабіў пах смалы.* **4.** Перахапіць у каго-н., не даць другому (разм.). *П. куплю.* ‖ *незак.* **перабіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАБЛЫ́ТАЦЦА** *гл.* блытацца.

**ПЕРАБЛЫ́ТАЦЬ** *гл.* блытаць.

**ПЕРАБЛЫ́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *блытаць* (у 1, 2 і 4 знач.).

**ПЕРАБО́Й**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Нярoўнасць у біцці, парушэнне рытму, затрымка, прыпыненне. *Пульс з перабоямі. Перабоі ў дастаўцы тавараў* (перан.). ‖ *прым.* **перабо́йны**, -ая, -ае.

**ПЕРАБО́ЛЬШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак. што і без дап.* Падаць у большых памерах, чым на самай справе; надаць празмерна важнае значэнне чаму-н. *П. магчымасці. Яна любіць п.* ‖ *незак.* **перабо́льшваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перабо́льшанне**, -я, *н.*

**ПЕРАБО́Р**, -у, *м.* **1.** *гл.* перабраць. **2.** Частае чаргаванне якіх-н. гукаў; перазвон. *Баяны і гармонікі заігралі ў п.*

**ПЕРАБО́РКА** *гл.* перабраць.

**ПЕРАБО́РЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Вельмі патрабавальны, капрызны пры выбары каго-, чаго-н. *П. да яды.* ‖ *наз.* **перабо́рлівасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАБРАДЗІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ро́дзіць; *зак.* Стаць гатовым для ўжывання або сапсавацца ў выніку празмернага браджэння. *Піва перабрадзіла. Цеста перабрадзіла.*

**ПЕРАБРА́ЦЦА**, -бяру́ся, -бярэ́шся, -бярэ́цца; -бяро́мся, -бераце́ся, -бяру́цца; -бяры́ся; *зак.* **1.** Перайсці, пераправіцца. *П. на другі бераг.* **2.** Тое, што і *перасяляцца. П. ў новы дом.* ‖ *незак.* **перабіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПЕРАБРА́ЦЬ**, -бяру́, -бярэ́ш, -бярэ́; -бяро́м, -бераце́, -бяру́ць; -бяры́; -бра́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Разбіраючы, сартуючы, пераглядзець (многае). *П. кнігі. П. бульбу. П. у размове ўсіх знаёмых* (перан.). **2.** *што.* Разабраўшы, скласці, набраць нанава (спец.). *П. сцены. П. тэкст.* **3.** *што.* Паслядоўна дакрануцца да чаго-н. *П. гузікі на кофце пальцамі.* **4.** *што і чаго.* Узяць больш, чым трэба, занадта многа. *П. фонд зарплаты.* **5.** Зрабіць звыш меры, перадаць, перастарацца (разм.). *П. меру* (зрабіць лішняе). *У нядзелю ў гасцях перабраў* (выпіў лішняе). ‖ *незак.* **перабіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перабіра́нне**, -я, *н.*, **перабо́р**, -у, *м. і* **перабо́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 2 знач.).

**ПЕРАБРУ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Забрудзіць усё, многае. *П. усю вопратку.*

**ПЕРАБУДАВА́ЦЦА**, -ду́юся, -ду́ешся, -ду́ецца; -ду́йся; *зак.* Змяніць парадак сваёй работы, напрамак сваёй дзейнасці, свае погляды. *П. пасля крытыкі.* ‖ *незак.* **перабудо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **перабудо́ва**, -ы, *ж.*

**ПЕРАБУДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак., што.* **1.** Зрабіць перабудову ў якой-н. пабудове. *П. хату.* **2.** Пабудаваць, перарабіць па-новаму, унёсшы змены ў парадак, сістэму чаго-н. *П. план. П. працу школы. П. сказ.* ‖ *незак.* **перабу-**

**дóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перабудóва**, -ы, *ж.*

**ПЕРАБУДÓВА**, -ы, *ж.* **1.** *гл.* перабудавацъ, перабудавацца. **2.** У СССР у 1985—1991 гг.: працэс рэфармавання эканомікі і грамадскай свядомасці, скіраваны на развіццё дэмакратыі і галоснасці, заканчэнне халоднай вайны. ‖ *прым.* **перабудóўчы**, -ая, -ае. *Перабудоўчыя працэсы.*

**ПЕРАБЫВÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *зак.* і *незак.* **1.** *незак., гл.* перабыць. **2.** *зак.* Тое, што і *перабыць* (у 2 знач.). *За апошні час тут перабывала многа людзей.*

**ПЕРАБЫ́ЦЬ**, -бýду, -бýдзеш, -бýдзе; -бýдзь; -бы́ты; *зак.* (разм.). **1.** *што* і *без дап.* Пражыць нейкім чынам, перачакаць нейкі час, да якой-н. пары. *П. ноч у знаёмых.* **2.** Пабываць у розны час дзе-н. — пра ўсіх, многіх або пабываць у каго-н. у руках — пра ўсё, многае. *За апошні час тут перабыло многа людзей. Колькі кніг перабыло ў яго руках.* ‖ *незак.* **перабывáць**, -áю, -áеш, -áе (да 1 знач.).

**ПЕРАБЯГÁЦЬ** *гл.* перабегчы.

**ПЕРАБЯЛІ́ЦЬ**, -бялю́, -бéліш, -бéліць; -бéлены; *зак., што.* **1.** Пабяліць нанава. *П. печ.* **2.** Пабяліць усё, многае. *За сезон перабяліў сотні пакояў.* **3.** Сапсаваць празмерным бяленнем. *П. палотны хлоркай* (разм.). **4.** Перапісаць з чарнавіка начыста (уст.). *П. рукапіс.* ‖ *незак.* **перабéльваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перабéльванне**, -я, *н. і* **перабéлка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.*

**ПЕРАВÁБІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., каго (што).* Заахвоціўшы чым-н., угаварыць перайсці, пераехаць куды-н., пераманіць. *П. добрага работніка.* ‖ *незак.* **перавáбліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАВÁГА**, -і, *ДМ* -вáзе, *мн.* -і, -вáг, *ж.* **1.** Асаблівасць, што выгадна адрознівае каго-, што-н.; выгада. *Атрымаць перавагу. Колькасная п.* **2.** Выключнае права на што-н., прывілея. *Спадчынныя правы і перавагі.*

**ПЕРАВАЖÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* Мець перавагу ў чым-н.; займаць пануючае становішча. *Тут пераважаюць сосны.*

**ПЕРАВÁЖНА**, *прысл.* Галоўным чынам, у большасці. *Лес быў п. хваёвы.*

**ПЕРАВÁЖНЫ**, -ая, -ае. Найбольш пашыраны, распаўсюджаны, які змяшчае ў сабе якую-н. перавагу. *Пераважную большасць калектыву складае моладзь.*

**ПЕРАВÁЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Узважыць яшчэ раз. *П. груз перад здачай.* **2.** *каго-што.* Узважыць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. усе мяшкі з мукой.* **3.** *каго-што.* Перасягнуць у вазе, перацягнуць. *Адна шаля вагаў пераважыла другую.* **4.** *перан.* Аказацца больш значным, важкім, перасіліць. *Дапытлівасць пераважыла страх.* ‖ *незак.* **перавáжваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАВАЗІ́ЦЬ**, -важý, -вóзіш, -вóзіць; -вóжаны; *зак., каго-што.* Возячы, паступова перавезці, перапраравіць. *П. усю цэглу.*

**ПЕРАВÁЛ**, -у, *м.* **1.** *гл.* пераваліць. **2.** *мн.* -ы, -аў. Найбольш нізкае месца ў горным хрыбце, даступнае для пераходу, дарога цераз такое месца. *Турысты прайшлі небяспечны п.* ‖ *прым.* **перавáльны**, -ая, -ае.

**ПЕРАВАЛІ́ЦЦА**, -валю́ся, -вáлішся, -вáліцца; *зак.* **1.** Валячыся, перабіраючыся цераз што-н., упасці на процілеглы бок чаго-н. *П. цераз борт.* **2.** Перавярнуцца з аднаго боку на другі (разм.). *П. на другі бок.* ‖ *незак.* **перавáльвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАВАЛІ́ЦЬ**, -валю́, -вáліш, -вáліць; -вáлены; *зак.* **1.** *што.* Перамясціць, пераложыць, звальваючы (пры перагрузцы; спец. і разм.). **2.** *што* і *цераз што.* Перайсці цераз горны хрыбет. **3.** *асаб.* і *безас.* Перайсці які-н. колькасны або часавы рубеж. *Прабег машыны пераваліў за сотню тысяч кіламетраў. Ужо пераваліла* (безас.) *за пяцьдзясят гадоў.* ‖ *незак.* **перавáльваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перавáльванне**, -я, *н.* (да 1 знач.), **перавáлка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* (да 1 знач.; спец.) *і* **перавáл**, -у, *м.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **перавáлачны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *П. пункт* (таксама перан.: наогул пра месца перамяшчэння, перабазіравання чаго-н.).

**ПЕРАВАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Паваліць усіх, многіх або ўсё, многае.

**ПЕРАВАНДРАВÁЦЬ**, -рýю, -рýеш, -рýе; -рýй; *зак.* Вандруючы, перабрацца, перамясціцца куды-н. *П. на новую пашу.* ‖ *незак.* **перавандрóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАВАРÓТ**, -у, *М* -рóце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Рэзкі паварот, карэнныя змены у развіцці чаго-н. *П. у навуцы.* **2.** Карэнная змена ў дзяржаўным жыцці. *Дзяржаўны п.* **3.** Паварот з аднаго боку на другі. *П. цераз крыло* (фігура вышэйшага пілатажу). *Скачок з пераваротам* (у гімнастыцы). ‖ *прым.* **пераварóтны**, -ая, -ае (да 3 знач.).

**ПЕРАВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -вáрыцца; *зак.* Ад доўгага варэння стаць не такім, як трэба. *Мяса пераварылася.* ‖ *незак.* **перавáрвацца**, -аецца.

**ПЕРАВАРЫ́ЦЬ**, -варý, -вáрыш, -вáрыць; -вáраны; *зак., што.* **1.** Зварыць нанава. *П. варэнне.* **2.** Надта доўга варачы, зрабіць не такім, як трэба. *П. мяса.* **3.** *перан.* Асэнсаваць і засвоіць прачытанае. *П. прачытаную кнігу.* ‖ *незак.* **перавáрка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (разм.).

**ПЕРАВÉЗЦІ**, -вязý, -вязéш, -вязé; -вязём, -везяцé, -вязýць; -вёз, -вéзла; -вязі́; -вéзены; *зак., што.* **1.** Перамясціць, везучы цераз якую-н. прастору. *П. цераз раку.* **2.** Везучы, даставіць з аднаго месца ў другое. *П. дзяцей на дачу.* ‖ *незак.* **перавóзіць**, -вóжу, -вóзіш, -вóзіць. ‖ *наз.* **перавóз**, -у, *м. і* **перавóзка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* ‖ *прым.* **перавóзачны**, -ая, -ае *і* **перавóзны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Перавозачныя сродкі. Перавозны пункт.*

**ПЕРАВЕЛІЧЭ́ННЕ** *гл.* перавялічыць.

**ПЕРАВÉСІЦЦА**, -вéшуся, -вéсішся, -вéсіцца; *зак.* Звесіцца (у 1 знач.) цераз што-н. *П. цераз плот.* ‖ *незак.* **перавéшвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАВÉСІЦЬ**, -вéшу, -вéсіш, -вéсіць; -вéшаны; *зак.* **1.** *што.* Павесіць на другое месца. *П. партрэт.* **2.** *каго-што.* Перакінуўшы цераз што-н., павесіць канцамі ўніз. *П. мяшок цераз плячо.* ‖ *незак.* **перавéшваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАВÉСЦІ**[1], -вядý, -вядзéш, -вядзé; -вядзём, -ведзяцé, -вядýць; -вёў, -вялá, -лó; -вядзі́; -вéдзены; *зак.* **1.** *каго (што).* Ведучы, перамясціць цераз якую-н. прастору. *П. дзяцей цераз вуліцу.* **2.** *каго-што.* Перамясціць з аднаго месца на другое, размясціць у іншым месцы. *П. хворага ў другую палату. П. чыгуначныя саставы на запасныя пуці.* **3.** *каго (што).* Назначыць на іншае месца, пасаду і пад. *П. студэнта ў другі інстытут. П. на другую аплату.* **4.** *што.* Перадаць, пераслаць. *П. грошы па пошце.* **5.** *што.* Падаць у іншых велічынях, у другіх знаках. *П. аршыны ў метры. П. долары ў рублі.* **6.** *што.* Перанесці, перарысаваць на што-н. (якое-н. адлюстраванне). *П. выкрайку.* ◊ **Перавесці дух, дыханне** — 1) глыбока ўздыхнуць, аддыхацца; 2) зрабіць кароткі перапынак, перадышку ў чым-н. ‖ *незак.* **перавóдзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **перавóд**, -у, *М* -вóдзе, *м.*; *прым.* **перавóдны**, -ая, -ае (паводле 3, 4 і 6 знач.). *Пераводныя экзамены. П. бланк. Пераводныя карцінкі.*

**ПЕРАВÉСЦІ**[2], -вядý, -вядзéш, -вядзé; -вядзём, -ведзяцé, -вядýць; -вёў, -вялá, -лó; -вядзі́; -вéдзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Знішчыць, вывесці. *П. мышэй.* **2.** *што.* Зрасходаваць без асаблівай карысці або марна (разм.). *П. грошы.* ‖ *незак.* **перавóдзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **перавóд**, -у, -*М* -вóдзе, *м. П. грошай.*

**ПЕРАВÉСЦІСЯ**[1], -вядýся, -вядзéшся, -вядзéцца; -вядзёмся, -ведзяцéся, -вядýцца; -вёўся, -вялáся, -лóся; -вядзі́ся; *зак.* Перайсці на новую пасаду, на новае месца працы, вучобы і пад. *П. на завочнае аддзяленне.* ‖ *незак.* **перавóдзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца.

**ПЕРАВÉСЦІСЯ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -вядзéцца; -вёўся, -вялáся, -лóся; *зак.* Зрасходавацца, знікнуць. *Яшчэ грошы не перавяліся.* ‖ *незак.* **перавóдзіцца**, -дзіцца.

**ПЕРАВÉТРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* Прасушыць на ветры. *П. збожжа.* ‖ *незак.* **перавéтрываць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАВÉШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Павесіць усё, многае або ўсіх, многіх.

**ПЕРАВÉШВАЦЦА** *гл.* перавесіцца.

**ПЕРАВÉШВАЦЬ** *гл.* перавесіць.

**ПЕРАВІ́ЦЬ**, -раўю́, -раўéш, -раўé; -раўём, -раўяцé, -раўю́ць; -віў, -вілá, -лó; -равí; -ві́ты; *зак., што.* **1.** Абвіць чым-н., абвязаць. *Карані перавілі лясную дарогу.* **2.** Звіць нанава. *П. вяроўку.* **3.** Перамотаць на што-н. іншае. *П. ніткі з матка на клубок.* ‖ *незак.* **перавівáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПЕРАВÓД**[1], -а *і* -у, *М* -вóдзе, *м.* **1.** -у, *гл.* перавесці[1]. **2.** -а, *мн.* -ы, -аў. Грашовае

адпраўленне праз банк, па пошце, тэлеграфе. *Адправіць грошы пераводам.* ‖ *прым.* **перавóдны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *П. бланк.*

**ПЕРАВÓД**[2] *гл.* перавесці[2].

**ПЕРАВÓДЗІЦЦА**[1] *гл.* перавесціся[1].

**ПЕРАВÓДЗІЦЦА**[2] *гл.* перавесціся[2].

**ПЕРАВÓДЗІЦЬ**[1] *гл.* перавесці[1].

**ПЕРАВÓДЗІЦЬ**[2] *гл.* перавесці[2].

**ПЕРАВÓДНЫ** *гл.* перавесці[1], перавод[1].

**ПЕРАВÓЗ**, -у, *м.* **1.** *гл.* перавезці. **2.** *мн.* -ы, -аў. Месца пераправы цераз раку на пароме, лодцы і пад.

**ПЕРАВÓЗАЧНЫ** *гл.* перавезці.

**ПЕРАВÓЗІЦЬ** *гл.* перавезці.

**ПЕРАВÓЗКА** *гл.* перавезці.

**ПЕРАВÓЗНЫ** *гл.* перавезці.

**ПЕРАВÓЗЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца перавозам цераз раку на лодцы, пароме і пад. ‖ *ж.* **перавóзчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **перавóзчыцкі**, -ая, -ае.

**ПЕРАВÓРВАННЕ** *гл.* пераараць.

**ПЕРАВÓРВАЦЬ** *гл.* пераараць.

**ПЕРАВУЧЫ́ЦЬ**, -вучу́, -ву́чыш, -ву́чыць; -ву́чаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Навучыць, падрыхтаваць усіх, многіх. *Ён перавучыў сотні дзяцей.* **2.** *каго (што).* Навучыць нанава. *Навучыць лягчэй, чым п.* **3.** *што.* Вывучыць, завучыць нанава. *П. урок.* **4.** *каго-што.* Праявіць празмернасць у завучванні ці навучанні каго-н. ‖ *незак.* **перавýчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **перавучы́цца**, -вучу́ся, -ву́чышся, -ву́чыцца (да 2 і 4 знач.); *незак.* **перавýчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАВЫ́БАРЫ**, -аў. Выбары членаў якой-н. арганізацыі, якія праводзяцца праз пэўныя прамежкі часу. *П. прафкама.* ‖ *прым.* **перавы́барны**, -ая, -ае.

**ПЕРАВЫ́БРАЦЬ**, -беру, -бераш, -бера; -беры; -браны; *зак., каго-што.* **1.** Выбраць нанава. *П. народнага суддзю.* **2.** Вызваліць ад выбарнай пасады, выбраўшы іншага (разм.). ‖ *незак.* **перавыбірáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПАРАВЫДÁННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* перавыдаць. **2.** Перавыдадзеная кніга.

**ПЕРАВЫДÁТАК**, -тку, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Тое, што і выдаткавана звыш нормы, плана; перарасход. *Допушчаны вялікі п.*

**ПЕРАВЫДАТКАВÁЦЬ**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; -кавáны; *зак., што.* Выдаткаваць звыш нормы, плана, перарасходаваць. *П. сродкі.* ‖ *незак.* **перавыдаткóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перавыдаткавáнне**, -я, *н.*

**ПЕРАВЫ́ДАЦЬ**, -дам, -дасі, -дасць; -дадзім, -дасце, -дадуць; -даў, -дала; -дай; -дадзены; *зак., што.* Выдаць зноў. *П. падручнік.* ‖ *незак.* **перавыдавáць**, -даю, -даéш, -даé; -даём, -даяцé, -даю́ць. ‖ *наз.* **перавыдáнне**, -я, *н.*

**ПЕРАВЫ́КАНАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Выканаць звыш прадугледжанага, звыш плана. *П. зменнае заданне.* ‖ *незак.* **перавыкóнваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перавыканáнне**, -я, *н.*

**ПЕРАВЫ́СІЦЬ**, -вы́шу, -вы́сіш, -вы́сіць; -вы́шаны; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Быць большым па колькасці, памеры, вазе і пад. *Вага спартсмена перавысіла 100 кг.* **2.** *што.* Перавыканаць норму, план і пад. *П. норму выпрацоўкі.* **3.** *што.* Выйсці за межы дазволенага. *П. свае паўнамоцтвы. П. хуткасць руху.* **4.** *каго (што).* Аказацца лепш за каго-, што-н. у якіх-н. адносінах. *П. усіх сваёй спрытнасцю.* ‖ *незак.* **перавышáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **перавышэ́нне**, -я, *н.* *План выкананы з перавышэннем. П. ўлады.*

**ПЕРАВЫТВÓРЧАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Вытворчасць, якая перавышае магчымасці збыту. *П. тавараў.*

**ПЕРАВЫ́ХАВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго (што).* Выхаваннем прывіць каму-н. новыя звычкі, погляды, нормы паводзін і пад. *П. недысцыплінаванага вучня.* ‖ *незак.* **перавыхóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **перавы́хавацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **перавыхóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **перавыхавáнне**, -я, *н.*

**ПЕРАВЯЗÁЦЬ**, -яжý, -я́жаш, -я́жа; -яжы́; -я́заны; *зак.* **1.** *каго-што.* Наладжыць павязку на каго-, што-н. *П. раненага. П. рану.* **2.** *каго-што.* Абвязаць з усіх бакоў, крыж-накрыж. *П. пасылку шпагатам.* **3.** *што.* Развязаўшы, завязаць іначай. *П. хустку.* **4.** *каго-што.* Звязаць, павязаць усё, многае або усіх, многіх. *П. усе рэчы.* **5.** *каго.* Навязаць на новым месцы. *П. цяля.* ‖ *незак.* **перавя́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перавя́зка**, -і, *ДМ* -зцы (да 1—3 і 5 знач.) *і* **перавя́званне**, -я, *н.*

**ПЕРАВЯ́ЗАЧНАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* У медыцынскай установе: спецыяльнае памяшканне для перавязак.

**ПЕРАВЯ́ЗАЧНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для перавязкі, для аказання лячэбнай дапамогі. *П. пункт. Перавязачныя сродкі.*

**ПЕ́РАВЯЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Павязка цераз плячо для падтрымання пашкоджанай рукі. *Падвесіць хворую руку на п.*

**ПЕРАВЯЛІ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Надаць чаму-н. празмернае значэнне. *П. заслугі. П. цяжкасці.* ‖ *незак.* **перавялі́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перавелічэ́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАВЯРНУ́ЦЦА**, -вярну́ся, -ве́рнешся, -ве́рнецца; -вярні́ся; *зак.* **1.** Павярнуцца з аднаго боку на другі, павярнуцца процілеглым бокам. *Лодка перавярнулася* (перакулілася). **2.** Прайсці, перабыць. *Колькі тут народу перавярнулася!* **3.** *у каго-што, перан.*Ператварыцца ў каго-, што-н.; прыняць іншы выгляд. *Былі рублі, ды перавярнуліся ў вераб'і* (прымаўка). *Хлопчык перавярнуўся ў казляня* (у казцы). **4.** *перан.* Рэзка змяніцца, пераменіцца. *У яго жыцці ўсё перавярнулася.* ‖ *незак.* **пераварóчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАВЯРНУ́ЦЬ**, -вярну́, -ве́рнеш, -ве́рне; -вярні́; -ве́рнуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Павярнуць процілеглым бокам, павярнуць з аднаго боку на другі. *П. хворага на другі бок. П. уверх дном што-н.* (таксама перан.: учыніць беспарадак дзе-н.). **2.** *што.* Бязладна раскідаць, перабіраючы што-н. у пошуках, ператрэсці. *П. усе паперы.* **3.** *каго-што ў каго-што.* Пераканаўшы, схіліць да якіх-н. змен; ператварыць у каго-, што-н. пры дапамозе чараў (у казках, легендах). *П. у сваю веру. П. у ваўка.* **4.** *што.* Змяніць, сказіць сэнс, змест чаго-н. (разм.). *П. на свой лад.* ‖ *незак.* **пераварóчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАВЯ́СЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Саламяны жгут для звязвання снапоў, кулёў. **2.** Звязка, вясло. *П. ключоў.*

**ПЕРАГАВАРЫ́ЦЬ**, -варý, -вóрыш, -вóрыць; *зак.* **1.** *з кім.* Абмяняцца думкамі, коратка пагаварыць. *П. адзін на адзін.* **2.** *каго (што).* Гучна, многа гаворачы, прымусіць замаўчаць іншых (разм.). *Яго не перагаворыш.* ‖ *незак.* **перагавóрваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.).

**ПЕРАГАВÓР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *мн.* Дзелавы абмен думкамі пры высвятленні якіх-н. пытанняў, умоў і пад. *Дыпламатычныя перагаворы.* **2.** Размова; кароткая спрэчка (разм.). *Заказаць міжгародні п. П. з суседкай па размеркаванні плошчы калідора быў гарачы.* ‖ *прым.* **перагавóрны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *П. пункт.*

**ПЕРАГАНЯ́ЦЬ** *гл.* перагнаць.

**ПЕРАГÁР**, -у, *м.* **1.** Тое, што перагарэла. *Цягне перагарам ад спаленага смецця.* **2.** Непрыемны пах з рота ад вялікай колькасці выпітых спіртных напіткаў. *Ад суседа патыхала перагарам.* ‖ *прым.* **перагáрны**, -ая, -ае.

**ПЕРАГАРАВÁЦЬ**, -рýю, -рýеш, -рýе; -рýй; *зак., што.* Перанесці, пержыць (нястачу, гора). *Зіму як-небудзь перагаруем.*

**ПЕРАГАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджý, -рóдзіш, -рóдзіць; -рóджаны; *зак., што.* Раздзяліць перагародкай. *П. пакой.* ‖ *незак.* **перагарóджваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАГАРÁЦЬ** *і* **ПЕРАГÁРВАЦЬ** *гл.* перагарэць.

**ПЕРАГАРНУ́ЦЬ**, -гарнý, -гóрнеш, -гóрне; -гарні́; -гóрнуты; *зак., што.* Перавярнуць старонку ці ліст чаго-н. *П. некалькі старонак.* ‖ *незак.* **перагóртваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАГАРÓДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Тонкая сценка, што дзеліць на часткі якое-н. памяшканне, сховішча. *Дашчаная п. ў хаце. Засек з перагародкамі.* **2.** *перан.* Тое, што аддзяляе адно ад другога, з'яўляецца перашкодай паміж чым-н. (кніжн.). *Саслоўныя перагародкі.* **3.** Унутраная сценка, што перагароджвае якую-н. поласць. *Насавая п.* ‖ *прым.* **перагарóдачны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ПЕРАГАРТАВÁЦЬ**, -тýю, -тýеш, -тýе; -тýй; -тавáны; *зак.* Залішне загартаваць; сапсаваць празмернай загартоўкай. *П. сталь.* ‖ *незак.* **перагартóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перагартóўванне**, -я, *н.*, **перагартóўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **перагáрт**, -у, *М*

-рце, *м.* ‖ *прым.* **перагартава́льны**, -ая, -ае (спец.).

**ПЕРАГАРТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Гартаючы, перабраць лісты, старонкі чаго-н. *П. часопіс.* ‖ *незак.* **пера-го́ртваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАГАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які перагарэў. *Перагарэлая бэлька. П. гной.*

**ПЕРАГАРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́ць; *зак.* **1.** Пераламацца ад гарэння ці моцнага нагрэву, трэння. *Вось перагарэла.* **2.** Сапсавацца ад доўгага гарэння, моцнага награвання. *Лямпачка перагарэла.* **3.** Сатлець, сапрэць. *Гной перагарэў.* **4.** *перан.* Знікнуць, прайсці, прытупіцца (пра пачуцці, перажыванні і пад.). *Гнеў перагарэў.* ‖ *незак.* **перагара́ць**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е *і* **перага́рваць**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае.

**ПЕРАГІ́Б**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Лінія згібання чаго-н. *На перагібе ліста.* **2.** *перан.* Парушэнне правільнай лініі ў якой-н. дзейнасці, шкодная крайнасць. *Барацьба з перагібамі.*

**ПЕРАГІБА́ЦЦА** *і* **ПЕРАГІНА́ЦЦА** *гл.* перагнуцца.

**ПЕРАГІБА́ЦЬ** *і* **ПЕРАГІНА́ЦЬ** *гл.* перагнуць.

**ПЕРАГЛА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Выгладзіць нанава або пагладзіць многа чаго-н. *П. усю бялізну.* ‖ *незак.* **перагла́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАГЛЕ́ДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Агледзець нанава, многае. *П. усе запісы.* **2.** *што.* Разгледзець нанава. *П. нормы выпрацоўкі.* ‖ *незак.* **пераглядáць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перагля́д**, -у, *М* -дзе, *м. і* **перагляда́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАГЛЯНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -леняце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак., з кім.* Абмяняцца кароткімі шматзначнымі позіркамі. *Хлопцы пераглянуліся між сабой.* ‖ *незак.* **перагляда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **перагля́двацца**, -ваюся, -ваешся, -ваецца.

**ПЕРАГНАІ́ЦЬ**, -наю́, -но́іш, -но́іць; -но́ены; *зак., што.* **1.** Згнаіць усё, многае. *П. сена.* **2.** Угнаіць звыш нормы, празмерна. *П. зямельны ўчастак.* ‖ *незак.* **пера-гно́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАГНА́ЦЬ**, -ганю́, -го́ніш, -го́ніць; -гані́; -гна́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Гонячы, перамясціць; пераправіць. *П. кароў на другое поле. П. лодкі на другі бераг.* **2.** *каго-што.* Тое, што і *абагнаць* (у 1 знач.). *Легкавая машына перагнала грузавую. П. у поспехах* (перан.). **3.** *што.* Апрацаваць, раздзяляючы на састаўныя часткі награваннем, кіпячэннем. *П. нафту.* ‖ *незак.* **перагання́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **пераго́н**, -у, *м.* (да 1 знач.) *і* **перагонка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (да 1 і 3 знач.). ‖ *прым.* **перагонны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.) *і* **перагоначны**, -ая, -ае (да 3 знач.). *Перагонны апарат.*

**ПЕРАГНІ́СЦІ** *і* **ПЕРАГНІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніе́; -ні́ў, -ніла́, -ло́; *зак.* Згнісці (згніць) зусім. *Гной перагніў.* ‖ *незак.* **пера-гніва́ць**, -а́е.

**ПЕРАГНО́Й**, -ю, *м.* Састаўная частка глебы, якая ўтварылася з рэштак згніўшых жывёльных і раслінных арганізмаў. ‖ *прым.* **перагно́йны**, -ая, -ае.

**ПЕРАГНО́ЙВАЦЬ** *гл.* перагнаіць.

**ПЕРАГНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* Сагнуцца пад вуглом, дугой; сагнуць сваё тулава, нахіліўшыся на што-н., звесіцца. *П. цераз падаконнік.* ‖ *незак.* **перагіба́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **перагіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПЕРАГНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* **1.** *што.* Сагнуць у дзве столкі, пад вуглом. *П. ліст паперы папалам.* **2.** *перан., што* і *без дап.* Дапусціць перагіб (у 2 знач.) у чым-н. (разм.). *Тут вы трошкі перагнулі.* ◊ **Перагнуць палку** (разм., неадабр.) — упасці ў крайнасць, перастарацца ў чым-н. ‖ *незак.* **перагіба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **перагіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перагіба́нне**, -я, *н.* (паводле дзеясл. перагібаць).

**ПЕРАГО́Н**[1], -у, *м.* **1.** *гл.* перагнаць. **2.** *мн.* -ы, -аў. Участак чыгункі паміж дзвюма станцыямі. ‖ *прым.* **перагонны**, -ая, -ае.

**ПЕРАГО́Н**[2], -у, *м.* Малако, абястлушчанае на сепаратары.

**ПЕРАГО́НКА** *гл.* перагнаць.

**ПЕРАГО́ННЫ** *гл.* перагнаць, перагон[1].

**ПЕРАГО́РТВАЦЬ** *гл.* перагарнуць *і* перагартаць.

**ПЕРАГРУ́ЖАНАСЦЬ**, -і, *ж.* Празмерная загружанасць, нагрузка ў каго-, чаго-н. *П. судна. П. работай.*

**ПЕРАГРУЗІ́ЦЬ**, -ужу́, -у́зіш, -у́зіць; -у́жаны; *зак., каго-што.* **1.** Грузячы, перамясціць. *П. збожжа з машыны ў вагоны.* **2.** Нагрузіць празмерна. *П. воз. П. вучняў дамашнімі заданнямі* (перан). ‖ *незак.* **пера-гружа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перагру́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* ‖ *прым.* **перагру́зачны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Перагрузачныя работы.*

**ПЕРАГРУ́ЗКІ**, -зак, *адз.* перагру́зка, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* **1.** *гл.* перагрузіць. **2.** Перавышэнне нармальнай для каго-, чаго-н. сілы цяжару, тэмпературы і пад. (спец.). *Пераносіць атмасферныя п.*

**ПЕРАГРУПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны; *зак., каго-што.* Згрупаваць нанава, інакш. *П. палкі перад наступленнем.* ‖ *незак.* **перагрупо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перагрупо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЕРАГРЫ́ЗЦІ**, -зу́, -зе́ш, -зе́; -зём, -зяце́, -зу́ць; -ы́з, -зла́; -зі́; -зены; *зак., каго-што.* **1.** Грызучы, раздзяліць на дзве часткі. *П. вяроўку.* **2.** Пагрызці ўсё, многае. ‖ *незак.* **перагрыза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАГРЫ́ЗЦІСЯ**, -зу́ся, -зе́шся, -зе́цца; -зёмся, -зяце́ся, -зу́цца; -зі́ся; *зак.* **1.** Пра жывёл: пакусаць адзін аднаго. **2.** *перан.* Перасварыцца (разм., неадабр.). *Учора перагрызліся, дык і сёння не размаўляюць.*

**ПЕРАГРЭ́ЦЦА**, -э́юся, -э́ешся, -э́ецца; *зак.* **1.** Нагрэцца надта моцна. *Матор перагрэўся.* **2.** Знаходзячыся доўга пад сонечнымі прамянямі, у лазні і пад., нанесці гэтым сабе шкоду. *П. на сонцы.* ‖ *незак.* **пераграва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **пераграва́нне**, -я, *н. і* **перагрэ́ў**, -рэ́ву, *м.*

**ПЕРАГРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; -э́ты; *зак., што.* Нагрэць вельмі моцна. *П. паяльнік.* ‖ *незак.* **пераграва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пераграва́нне**, -я, *н. і* **перагрэ́ў**, -рэ́ву, *м. П. металу. П. матора.*

**ПЕРАГУ́КВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак., з кім.* Абменьвацца час ад часу воклічамі, словамі, гукамі, даючы знаць пра сябе. *П. ў лесе.* ‖ *аднакр.* **перагукну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся.

**ПЕРАГУЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак.* **1.** Прагуляць звыш меры, больш, чым патрэбна. **2.** *што.* Згуляць паўторна. *П. партыю ў шахматы.* ‖ *незак.* **перагу́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перагу́льванне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ПЕ́РАД**[1], -у, *М* -дзе, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Пярэдняя частка чаго-н. *П. сукенкі.* **2.** Тое, што і *перадок* (у 1 знач.). **3.** звычайна *мн.* Частка абутку, што ахоплівае верх ступні.

**ПЕ́РАД**[2], *прыназ. з Т.* **1.** На невялікай адлегласці ад пярэдняга боку чаго-н., насупраць каго-, чаго-н. *П. хатай.* **2.** За некаторы час да чаго-н. *П. захадам сонца.* **3.** Служыць для ўказання асобы, з'явы, у адносінах да якіх робіцца што-н. *Не адступаць п. цяжкасцямі.* **4.** У параўнанні з кім-, чым-н. *Чаго варты гэты конь п. тым ламавіком.*

**ПЕРАД...**, *прыстаўка.* **1.** Ужыв. пры ўтварэнні назоўнікаў і азначае: спераду чаго-н., напр.: *перадгор'е, перадсэрдзе, перадгісторыя, перадумова.* **2.** Ужыв. пры ўтварэнні прыметнікаў і азначае: раней (у часе або прасторы) чаго-н., напр.: *перадна-вальнічны, перадпасяўны, перадынфарктны, перадназіскны.*

**ПЕРАДА**, *прыназ. з Т.* Тое, што і *перад*[2]; ужыв. ў спалучэнні «перада мной (мною)». *Ён чаргу займаў перада мной.*

**ПЕРАДАВА́ЦЦА** *гл.* перадацца.

**ПЕРАДАВА́ЦЬ** *гл.* перадаць.

**ПЕРАДАВА́Я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* **1.** Перадавы артыкул у газеце, перадавіца. **2.** Участак баёў, перадавая пазіцыя. *Знаходзіцца на перадавой.*

**ПЕРАДАВЕ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каму, каго-што і з інф.* Даверыць іншаму тое, што даверана самому. ‖ *незак.* **перадаўвяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАДАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто дасягнуў найлепшых вынікаў у рабоце, паказвае ўзоры свядомых, добрасумленных адносін да працы. *П. вытворчасці.*

**ПЕРАДАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які ідзе, знаходзіцца наперадзе астатніх. *П. атрад. Перадавая лінія.* **2.** *перан.* Які стаіць вышэй за іншых па ўзроўні развіцця, прагрэсіўны. *Перадавая тэхніка.*

**ПЕРАДАПО́ШНІ**, -яя, -яе. Які папярэднічае апошняму. *Студэнт перадапошняга курса.*

**ПЕРАДАРУЧЫ́ЦЬ**, -учу́, -у́чыш, -у́чыць; -у́чаны; *зак., што і каму.* Даручыць іншаму выкананне таго, што даручана самому. *П. работу намесніку.* ‖ *незак.* **перадаруча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАДА́ТАЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прызначаны, служыць для перадачы каго-, чаго-н. *П. механізм. П. пункт.* **2.** Які пацвярджае перадачу чаго-н. каму-н. *П. акт.*

**ПЕРАДА́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Апарат для перадачы паведамленняў, сігналаў, адлюстраванняў і г.д. у радыёвяшчанні, тэлебачанні, тэлеграфнай сувязі і г.д. *Караткахвалевы п. Светлавы п.*

**ПЕРАДА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -да́сца, -дадуцца; -да́ўся, -дала́ся, -ло́ся; *зак., каму.* Перайсці ад аднаго да другога. *Твой вясёлы настрой перадаўся і нам. Хвароба перадалася дзіцяці.* ‖ *незак.* **перадава́цца**, -дае́цца.

**ПЕРАДА́ЦЬ**, -да́м, -дасі́, -да́сць; -дадзі́м, -дасце́, -даду́ць; -да́ў, -дала́, -ло́; -да́й; -да́дзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Аддаць, уручыць, паведаміць каму-н. *П. пакет. П. пачутае. П. свае веды моладзі* (перан.). **2.** *што.* Распаўсюдзіць, давесці да каго-н. якім-н. чынам. *П. канцэрт па радыё.* **3.** *што.* Узнавіць, выкласці, адлюстраваць. *Правільна п. думку аўтара.* **4.** *што.* Аддаць у распараджэнне, на разгляд. *П. справу ў суд.* **5.** *што.* Аддаць у карыстанне. *П. сваю калекцыю музею.* **6.** *што.* Даць чаго-н. больш, чым трэба. *П. дзесяць рублёў пры разліку.* **7.** Перайсці меру ў чым-н., перастарацца (разм.). *Ён не вельмі перадасць у рабоце.* ‖ *незак.* **перадава́ць**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць. ‖ *наз.* **перада́ча**, -ы, *ж.* (да 1—6 знач.).

**ПЕРАДА́ЧА**, -ы, *мн.* -ы, -да́ч, *ж.* **1.** *гл.* перадаць. **2.** Тое, што перадаецца па радыё, тэлебачанні. *Музычная п. Слухаць перадачу па радыё.* **3.** Прадукты харчавання, рэчы, якія перадаюцца каму-н. (напр., хвораму ў бальніцу). *Прынесці перадачу хвораму.* **4.** Механізм, які перадае рух ад адной часткі прыстасавання да другой. *Зубчастая п.*

**ПЕРАДГО́Р'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Узвышаная мясцовасць перад гарамі. *Передгор'і Каўказа.*

**ПЕРАДЗВІ́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Перадавы, дэмакратычна настроены мастак-рэаліст другой паловы 19 ст. ў Расіі, удзельнік перасовачных мастацкіх выставак. ‖ *прым.* **перадзві́жніцкі**, -ая, -ае.

**ПЕРАДЗЕ́РЦІ**, -дзяру́, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзяро́м, -дзераце́, -дзяру́ць; -дзёр, -дзёрла; -дзяры́; -дзёрты; *зак., каго-што.* Тое, што і *перадраць.* ‖ *незак.* **перадзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАДЗІРА́ЦЬ** *гл.* перадраць, перадзерці.

**ПЕРАДЗЯЛІ́ЦЬ**, -дзялю́, -дзе́ліш, -дзе́ліць; -дзе́лены; *зак., што.* Падзяліць нанава, інакш. *П. зямельны ўчастак.* ‖ *незак.* **перадзе́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перадзе́л**, -у, *м.*

**ПЕРАДО́ЙКА**, -і, *ДМ* -до́йцы, *мн.* -і, -до́ек, *ж.* Тое, што і *ялавіца.*

**ПЕРАДО́К**, -дка́, *мн.* -дкі́, -дко́ў, *м.* **1.** Пярэдняя частка калёс, саней і пад. **2.** Двухколка для снарадаў і перавозкі гармат. *Адчапіць гармату ад перадка.* ‖ *прым.* **перадко́вы**, -ая, -ае.

**ПЕРАДО́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -до́х, -хла; *зак.* Здохнуць (пра ўсіх, многіх жывёл). *Усе мухі перадохлі.*

**ПЕРАДПЛЕ́ЧЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Частка рукі ад локця да кісці. ‖ *прым.* **перадплечавы́**, -а́я, -о́е.

**ПЕРАДПЛЮСНА́**, -ы́, *мн.* -плю́сны, -аў, *ж.* Частка ступні паміж плюсной і галёнкай. ‖ *прым.* **перадплюснявы́**, -а́я, -о́е.

**ПЕРАДПО́ЛЛЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (спец.). Умацаваная паласа перад галаўной пазіцыяй абароны. *Баі ў перадполлі.*

**ПЕРАДРАЖНІ́ЦЬ**, -дражню́, -дра́жніш, -дра́жніць; -дра́жнены; *зак., каго-што.* Падрабляючыся пад каго-н., падаць у смешным выглядзе. *П. крыўляку.* ‖ *незак.* **перадра́жніваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАДРА́НІШНІ**, -яя, -яе. Які бывае перад раніцай, папярэднічае раніцы. *П. час.*

**ПЕРАДРА́ЦЬ**, -дзяру́, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзяро́м, -дзераце́, -дзяру́ць; -дра́ў, -ра́ла; -дзяры́; -дра́ны; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Разадраць папалам, на часткі. *П. паперу.* **2.** *што.* Падраць, разадраць усё, многае, доўга носячы. *П. адзенне.* **3.** *каго.* Задраць, забіць (пра ўсіх, многіх жывёл, птушак). **4.** *што.* Пацерці на тарцы ўсё, многае. *П. усю бульбу.* ‖ *незак.* **перадзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАДРУКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* **1.** Надрукаваць нанава. *П. апавяданне ў газеце.* **2.** Перапісаць на пішучай машынцы. *П. рукапіс.* ‖ *незак.* **перадруко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перадруко́ўванне**, -я, *н.* **і перадру́к**, -у, *м.*

**ПЕРАДСВІТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які бывае перад світаннем. *П. туман.*

**ПЕРАДСВЯТО́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які бывае перад святам, папярэднічае яму. *П. настрой. Перадсвяточныя дні.*

**ПЕРАДСМЯРО́ТНЫ**, -ая, -ае. Які бывае, наступае перад смерцю. *Перадсмяротная агонія.*

**ПЕРАДСЭ́РДЗЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (спец.). Адна з дзвюх камер сэрца. *Правае п. Левае п.* ‖ *прым.* **перадсэ́рдзевы**, -ая, -ае.

**ПЕРАДУ́ЖАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Узяць верх, перамагчы. *П. хваробу.* **2.** Падужаць усіх, многіх або ўсё, многае. ‖ *незак.* **перадужваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАДУ́МАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** Падумаўшы, змяніць намер. *Хацеў зайсці да знаёмага, але перадумаў.* **2.** *што, пра што, аб чым* і *без дап.* Падумаць пра многае або многа разоў. *Многа прыйшлося п. за апошні час.* ‖ *незак.* **перадумваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАДУМО́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -мо́ў, *ж.* **1.** Папярэдняя ўмова чаго-н. *П. поспеху.* **2.** Зыходны пункт якога-н. разважання. *Зыходзіць з правільных перадумоў.*

**ПЕРАДЫХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* (разм.). Зрабіць кароткі перапынак для адпачынку (у час хадзьбы, працы і пад.). *Касцы селі п.*

**ПЕРАДЫ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Невялікі перапынак, каб аддыхацца, перавесці дыханне. *Бегчы кіламетр без перадышкі.* **2.** *перан.* Часовае спыненне якой-н. дзейнасці. *П. ў спрэчках.*

**ПЕРАЕ́ЗД**, -у *і* -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у, *гл.* пераехаць. **2.** -а. Месца, дзе праязджаюць цераз што-н. *Чыгуначны п.* ‖ *прым.* **пера́езны**, -ая, -ае. *Пераезная будка.*

**ПЕРАЕ́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн.). Чый-н. прадаўжальнік; той, хто заняў чыё-н. месца. *Падрыхтаваць сабе пераемніка. Пераемнікі Францыска Скарыны.* ‖ *ж.* **пераемніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **пераемніцкі**, -ая, -ае.

**ПЕРАЕ́МНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які ідзе паслядоўна, развіваецца ад аднаго да другога; заснаваны на непасрэдным пераходзе ад аднаго да другога. *П. рад з'яў. Пераемная сувязь развіцця чаго-н.* ‖ *наз.* **пераемнасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАЕ́СЦІ**, -е́м, -ясі́, -е́сць; -ядзі́м, -ясце́, -ядуць; -е́ў, -е́ла; -е́ш; -е́дзены; *зак.* **1.** *чаго* і *без дап.* З'есці лішняе. **2.** *што* і *чаго.* З'есці ўсё, многае. *Думалі хлеба не пераядзім за зіму.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Пра што-н. едкае: раз'ядаючы, разбурыць, раздзяліць на часткі. *Іржа пераела жалеза.* ‖ *незак.* **пераяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **пераяда́нне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**ПЕРАЕ́ХАЦЬ**, -е́ду, -е́дзеш, -е́дзе; -е́дзь; *зак.* **1.** *што* і *цераз што.* Праехаць цераз што-н., на другі бок чаго-н. *П. гасцінец.* **2.** *каго-што.* Праехаўшы па кім-, чым-н., раздушыць, пакалечыць. *Машына пераехала чалавека.* **3.** Перасяліцца, перабрацца. *П. у новы дом.* ‖ *незак.* **пераязджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перае́зд**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 і 3 знач.). ‖ *прым.* **перае́зны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ПЕРАЖАВА́ЦЬ**, -жую́, -жуе́ш, -жуе́; -жуём, -жуяце́, -жую́ць; -жу́й; -жава́ны; *зак., што.* Тое, што і *разжаваць* (у 1 знач.). *П. ежу.* ‖ *незак.* **пражо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАЖАНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -жэ́ніцца; -жэ́німся, -жэ́ніцеся, -жэ́няцца; *зак.* Ажаніцца — пра ўсіх, многіх. *Аднакурснікі ўсе пераджаніліся.*

**ПЕРАЖАНІ́ЦЬ**, -жаню́, -жэ́ніш, -жэ́ніць; -жэ́нены; *зак., каго (што).* Пажаніць усіх, многіх. *П. усіх сыноў.*

**ПЕРАЖЫВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Душэўны стан, выкліканы якімі-н. моцнымі адчуваннямі, уражаннямі. *Цяжкія перажыванні.*

**ПЕРАЖЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* пражыць. **2.** *за каго-што* і *без дап.* Хвалявацца, нервавацца з прычыны чаго-н., быць у стане душэўнага неспакою ў

сувязі з чым-н. *Пасварылася з суседкай, а цяпер перажываю.*

**ПЕРАЖЫТАК**, -тку, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Тое, што захавалася ад мінулага і не адпавядае сучасным нормам, астатак устарэлага. *Перажыткі даўніны.* ‖ *прым.* **перажытачны**, -ая, -ае.

**ПЕРАЖЫЦЬ**, -ыву́, -ыве́ш, -ыве́; -ывём, -ывяце́, -ыву́ць; -ыў, -ыла́, -ло́; -ыты; *зак.* **1.** *што.* Зазнаць у жыцці. *П. вялікую радасць.* **2.** *каго-што.* Пражыць даўжэй за каго-, што-н. *П. сваіх равеснікаў.* **3.** *што.* Выцерпець, перанесці што-н. *Ён не мог п. абразы.* ‖ *незак.* **перажыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАЗАРАДЗІЦЬ**, -раджу́, -ра́дзіш, -ра́дзіць; -ра́джаны; *зак., што.* Зарадзіць зноў. *П. ружжо. П. фотаапарат.* ‖ *незак.* **перазараджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перазара́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* ‖ *прым.* **перазара́дны**, -ая, -ае (спец.).

**ПЕРАЗВАНІЦЬ**, -ваню́, -во́ніш, -во́ніць; *зак.* (разм.). **1.** Пазваніць, набраўшы зноў нумар тэлефона. *Дрэнна чуваць, перазваніце.* **2.** Пазваніць па тэлефоне ўсім, многім або з многіх месцаў. *П. усім знаёмым. З усіх таксафонаў перазваніў — не працуюць.* ‖ *незак.* **перазво́ньваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПЕРАЗВО́Н**, -у, *м.* Гукі некалькіх званоў, званочкаў. *Сталёвы п. кос* (перан.).

**ПЕРАЗВО́НЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* перазваніць. **2.** Званіць папераменна ці адначасова ва ўсе званы.

**ПЕРАЗДАРО́ЎКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., з кім* (разм.). Павітацца з усімі, многімі.

**ПЕРАЗДА́ЦЬ**, -да́м, -дасі́, -да́сць; -дадзі́м, -дасце́, -даду́ць; -да́й; -да́дзены; *зак., што.* **1.** Здаць, перадаць у карыстанне што-н. нанава, на іншых умовах. *П. зямлю ў арэнду. П. пакой.* **2.** Здаць, раздаць зноў, паўторна (карты). **3.** Здаць экзамен, залік паўторна (разм.). *П. фізіку на чацвёрку.* ‖ *незак.* **пераздава́ць**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць; -дава́й. ‖ *наз.* **перазда́ча**, -ы, *ж. Дапусціць да пераздачы экзаменаў.*

**ПЕРАЗДЫМАК**, -мка, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* Здымак, атрыманы ў выніку пераздымкі.

**ПЕРАЗДЫМА́ЦЬ** *гл.* перазняць.

**ПЕРАЗДЫМКА** *гл.* перазняць.

**ПЕРАЗІМАВА́ЦЬ** *гл.* зімаваць.

**ПЕРАЗМЕ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Прамежак часу паміж дзвюма зменамі (у 2 знач.).

**ПЕРАЗНАЁМІЦЦА**, -млюся, -мішся, -міцца; *зак.* (разм.). Пазнаёміцца з усімі, многімі або паміж сабой. *У дарозе турысты перазнаёміліся.*

**ПЕРАЗНАЁМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак., каго (што)* (разм.). Пазнаёміць паміж сабой усіх, многіх або каго-н. аднаго з усімі, многімі. *П. гасцей.*

**ПЕРАЗНЯ́ЦЬ**, -німу́, -ні́меш, -ні́ме; -ня́ў, -няла́, -ло́, -лі́; -ні́мі; -ня́ты; *зак., каго-што.* Зрабіць новую здымку (*гл.* зняць у 9 і 10 знач.), зняць нанава. *П. план участка. П. кадр фільма.* ‖ *незак.* **пераздыма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **перазніма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пераздымка**, -і, *ДМ* -мцы, *ж. П. мясцовасці.*

**ПЕРАЙГРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Сыграць паўторна. *П. партыю.* **2.** *перан., што.* Вырашыць па-іншаму, зрабіць інакш, змяніць (разм.). *Яны ўдвух перайгралі тую справу.* **3.** *што.* Сыграць усё, многае. *П. усе п'есы.* **4.** *без дап.* Сыграць ролю ненатуральна, перабіраючы меру (разм.). *У гэтай сцэне артыст яўна перайграў.* ‖ *незак.* **пераі́грываць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пераі́грыванне**, -я, *н.*

**ПЕРАЙМА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто запазычвае, пераймае што-н. у каго-, чаго-н. ‖ *ж.* **перайма́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **перайма́льніцкі**, -ая, -ае.

**ПЕРАЙМА́ЛЬНІЦТВА**, -а, *н.* (неадабр.). Несамастойнасць у творчасці, наследаванне, перайманне.

**ПЕРАЙМА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які ўяўляе сабой перайманне. *Пераймальная літаратура.* ‖ *наз.* **перайма́льнасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАЙМА́ННЕ** *гл.* пераняць.

**ПЕРАЙМА́ЦЬ** *гл.* пераняць.

**ПЕРАЙМЕНАВА́ЦЬ**, -мяну́ю, -мяну́еш, -мяну́е; -мяну́й; -менава́ны; *зак., каго-што.* Даць каму-, чаму-н. новую назву або імя. *П. вуліцу.* ‖ *незак.* **перайменоўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАЙНА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што.* Змяніўшы, зрабіць іншым. *П. характар.* ‖ *незак.* **перайна́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАЙСЦІ́**, перайду́, пяро́йдзеш, пяро́йдзе; перайшо́ў, -шла́, -ло́; перайдзі́; пяро́йдзены; *зак.* **1.** *што і цераз што.* Ідучы, перамясціцца на працілеглы бок чаго-н. *П. дарогу. П. цераз раку. П. граніцу. П. межы дазволенага* (перан.). **2.** Прайсці з аднаго месца на другое. *П. ў другі пакой.* **3.** Змяніць работу, стан, месца знаходжання. *П. на новую работу. П. на трэці курс.* **4.** *каму і да каго.* Дастацца каму-, чаму-н. ад каго-, чаго-н., стаць чыёй-н. уласнасцю. *Гэта хата перайшла нам ад бацькоў.* **5.** *у што, да чаго, на што.* Прыняцца за што-н. іншае, пачаць дзейнічаць па-іншаму. *П. ў наступленне. П. да абмеркавання чарговага пытання. П. на нелегальнае становішча.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *у што.* Пертварыцца ў што-н. іншае, стаць другім. *Дождж перайшоў у снег. Сяброўства перайшло ў каханне.* **7.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Уступіць, ахвяраваць што-н. каму-н. (разм.). *Няхай лепш мае пяройдзе.* ‖ *незак.* **перахо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **перахо́д**, -у, *М* -дзе, *м. П. колькасці ў якасць.*

**ПЕРАКАВА́ЦЬ**, -кую́, -куе́ш, -куе́; -куём, -куяце́, -кую́ць; -ку́й; -кава́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Падкаваць нанава або ўсіх, многіх. *П. каню пярэднія ногі. П. усіх коней.* **2.** *што.* Перарабіць каваннем. *П. мячы на аралы* (высок.). **3.** *перан., каго-што.* Карэнным чынам змяніць, перавыхаваць (разм.). *П. свой характар.* ‖ *незак.* **перако́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **перакава́цца**, -кую́ся, -куе́шся, -куе́цца; -куёмся, -куяце́ся, -кую́цца; -ку́йся (да 3 знач.); *незак.* **перако́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 3 знач.). *Па ходзе п'есы галоўны герой перакоўваецца.* ‖ *наз.* **перако́ўванне**, -я, *н. і* **перако́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЕРАКА́З**, -у, *м.* **1.** *гл.* пераказаць. **2.** *мн.* -ы, -аў. Пісьмовая або вусная перадача сваімі словамі чаго-н. прачытанага, пачутага. *Зрабіць п. аповесці.*

**ПЕРАКАЗА́ЦЬ**, -кажу́, -ка́жаш, -ка́жа; -каза́ў, -за́ла; -кажы́; -ка́заны; *зак., што.* **1.** Расказаць, выкласці сваімі словамі што-н. *П. змест паэмы.* **2.** *і з дадан. сказам.* Паведаміць пра што-н. вусна; перадаць на словах чыю-н. просьбу, даручэнне і пад. *П. дома ўбачанае ў горадзе. Перакажыце маім, што прыеду ў выхадны.* **3.** Расказаць падрабязна, паслядоўна пра ўсё, многае. *П. усе навіны.* ‖ *незак.* **перака́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перака́з**, -у, *м.*

**ПЕРАКАЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Перамерзнуць, моцна змерзнуць. *Перакалеў, едучы дамоў.*

**ПЕРАКАЛЕ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што* (разм.). Пакалечыць усіх, многіх або ўсё, многае. *Вайна перакалечыла людзей.*

**ПЕРАКАЛО́ЦЬ**[1], -калю́, -ко́леш, -ко́ле; -калі́; -ко́латы; *зак., што.* Раскалоць усё, многае. *П. усе дровы.* ‖ *незак.* **перако́лваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАКАЛО́ЦЬ**[2], -калю́, -ко́леш, -ко́ле; -калі́; -ко́латы; *зак.* **1.** *што.* Прыкалоць іначай або ў іншым месцы. *П. значок.* **2.** *каго.* Закалоць усіх, многіх. *П. свіней.* ‖ *незак.* **перако́лваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПЕРАКАНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *пераканаўчы.* ‖ *наз.* **перакана́льнасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАКАНА́НАСЦЬ**, -і, *ж.* Цвёрдая ўпэўненасць у чым-н. *Сцвярджаць што-н. з вялікай перакананасцю.*

**ПЕРАКАНА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* пераканаць. **2.** *мн.* -і, -яў. Цвёрды, непахісны погляд на што-н., упэўненасць. *Адстойваць свае перакананні.*

**ПЕРАКАНА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Цвёрда ўпэўнены ў чым-н., які выражае ўпэўненасць. *П. ў сваёй праваце. Гаварыць перакананым тонам. Пераканана* (прысл.) *сцвярджаць.* **2.** Непахісны ў сваіх поглядах. *П. матэрыяліст.*

**ПЕРАКАНА́ЎЧЫ**, -ая, -ае. Які прымушае паверыць у правільнасць, праўдзівасць чаго-н.; пранікнуты сілай перакананасці. *П. факт.* ‖ *наз.* **перакана́ўчасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАКАНА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., у чым і з дадан.* Упэўніцца ў чым-н., паверыць у што-н. *П. ў неабгрунтаванасці падазрэнняў. Я пераканаўся, што па-другому тут не зробіш.* ‖ *незак.* **перако́нвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАКАНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго (што).* **1.** і *з дадан.* Прымусіць паверыць чаму-н., упэўніць у чым-н. *Яго словы пераканалі нас. Ён пераканаў, што трэба рабіць менавіта так.* **2.** *з інф.* або *злуч.* «каб». Угаворамі схіліць да чаго-н., прымусіць зрабіць што-н. *П. каго-н. застацца. Трэба п. яго, каб ехаў сёння.* ‖ *незак.* **перако́нваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **перако́нванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **пераканáнне**, -я, *н.*

**ПЕРАКАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Ускапаць нанава. *П. бульбянішча.* **2.** Падзяліць што-н. ровам, канавай ўпоперак. *П. дарогу.* **3.** *перан.* У пошуках чаго-н. дэталёва перагледзець, перабраць паперы, рэчы і пад. *Перакапаў усе рэчы ў шуфлядзе.* ‖ *незак.* **перако́пваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перако́пванне**, -я, *н.*

**ПЕРАКАРМІ́ЦЬ**, -кармлю́, -ко́рміш, -ко́рміць; -ко́рмлены; *зак., каго (што).* Накарміць звыш меры, абкарміць. *П. дзіця.* ‖ *незак.* **перако́рмліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перако́рмліванне**, -я, *н. і* **перако́рм**, -у, *м.*

**ПЕРАКАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што* (разм.). Тое, што і *ператасаваць* (у 1 знач.). ‖ *незак.* **перакарто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАКАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Закрэсліць зусім, цалкам. *П. старонку рукапісу.* **2.** Закасаваць, закрэсліць усё, многае. ‖ *незак.* **перакасо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАКАСІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ко́сіцца; *зак.* Стаць касым, несіметрычным; скрывіцца. *Дзверы перакасіліся.* ‖ *незак.* **перако́швацца**, -аецца. ‖ *наз.* **перако́шванне**, -я, *н. і* **перако́с**, -у, *м.*

**ПЕРАКАСІ́ЦЬ**[1], -кашу́, -ко́сіш, -ко́сіць; -ко́шаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць касым, несіметрычным; скрывіць. *П. раму.* **2.** звычайна *безас., каго-што.* Тое, што і *перакрывіць* (у 2 знач.). ‖ *незак.* **перако́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перако́с**, -у, *м. і* **перако́шванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **перако́сны**, -ая, -ае (спец.).

**ПЕРАКАСІ́ЦЬ**[2], -кашу́, -ко́сіш, -ко́сіць; -ко́шаны; *зак., што.* **1.** Скасіць далей за вызначаную мяжу. *П. мяжу.* **2.** Скасіць усё, многае. *П. усе лугі.* ‖ *незак.* **перако́шваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **перако́шванне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **перако́с**, -у, *м.* (да 1 знач.).

**ПЕРАКА́Т**[1], -у, *М* -ка́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Працяжны перарывісты гул. *Перакаты грому.* ‖ *прым.* **перака́тны**, -ая, -ае.

**ПЕРАКА́Т**[2], -у, *М* -ка́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мелкаводны ўчастак рэчышча ракі. *Рачныя перакаты.* ‖ *прым.* **перака́тны**, -ая, -ае.

**ПЕРАКАЦІ́-ПО́ЛЕ**, -я, *н.* Назва некаторых травяністых раслін стэпаў і пустынь, якія пасля выспявання адрываюцца ветрам ад кораня і, сплёўшыся ў клубкі, перакочваюцца з аднаго месца ў другое, раскідаючы насенне.

**ПЕРАКАЦІ́ЦЦА**, -качу́ся, -ко́цішся, -ко́ціцца; *зак.* **1.** Коцячыся, перамясціцца куды-н. *Мяч перакаціўся за рысу поля.* **2.** Упаўшы, перавярнуцца, перакінуцца (разм.). *П. ад аднаго ўдару.* ‖ *незак.* **перако́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 знач.). ‖ *прым.* **перака́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПЕРАКАЦІ́ЦЬ**, -качу́, -ко́ціш, -ко́ціць; -ко́чаны; *зак., каго-што.* Коцячы, перамясціць куды-н. *П. бервяно.* ‖ *незак.* **перако́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перако́чванне**, -я, *н.*

**ПЕРАКАЧАВА́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; -чу́й; *зак.* Тое, што і перавандраваць. ‖ *незак.* **перакачо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАКАЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Качаючы, перамясціць усё, многае. *П. бочкі ў падвал.* **2.** *што.* Разгладзіць качалкай усё, многае. *П. усю бялізну.* **3.** *што.* Качаючы (насосам), перамясціць. *П. ваду ў вадасховішча. П. бензін у каністру.*

**ПЕРАКАШТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* Пакаштаваць усё, многае. *П. стравы.*

**ПЕРАКВАЛІФІКАВА́ЦЦА**, -ку́юся, -ку́ешся, -ку́ецца; -ку́йся; *зак.* Набыць новую спецыяльнасць, прафесію. ‖ *наз.* **перакваліфіка́цыя**, -і, *ж.*

**ПЕРАКВАЛІФІКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., каго (што).* Даць каму-н. новую кваліфікацыю, прафесію. ‖ *наз.* **перакваліфіка́цыя**, -і, *ж.*

**ПЕРАКІ́ДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). З цяжкасцю пражыць, перабыць які-н. час. *Год сяк-так перакідаліся.*

**ПЕРАКІ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Кідаючы, перамясціць у іншае месца ўсё, многае. *П. дровы з двара пад павець.* **2.** Скідаць, злажыць нанава, іначай. *П. стог сена.* ‖ *незак.* **перакі́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАКІДНЫ́**, -а́я, -о́е. Перакінуты або які перакідваецца цераз што-н. *П. мост. П. каляндар.*

**ПЕРАКІ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Штуршком, махам перамясціцца цераз каго-, што-н. *П. цераз плот.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Распаўсюдзіцца з аднаго месца на другое. *Агонь перакінуўся з хаты на гумно.* **3.** *перан.* Перайсці на чый-н. бок, стаць прыхільнікам каго-, чаго-н. (разм.). *П. ў лагер паўстанцаў.* **4.** *чым.* Кінуць што-н. адзін аднаму. *П. мячыкам. П. словам* (перан., разм.). *П. жартамі* (перан., разм.). **5.** Перакуліцца, перавярнуцца на другі бок (разм.). *Воз перакінуўся ў канаву.* ‖ *незак.* **перакіда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **перакі́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАКІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -кі́нь; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Кінуць цераз каго-, што-н. ці далей за якую-н. мяжу. *П. мяшок з аднаго пляча на другое. П. мяч за рысу.* **2.** *што.* Палажыць што-н. упоперак чаго-н. для пераправы. *П. кладку цераз ручай.* **3.** *перан., каго-што.* Перамясціць, адправіць на іншае месца. *П. тэхніку ў раён меліярацыі. П. брыгаду тэхнікаў на новы аб'ект.* ‖ *незак.* **перакіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **перакі́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перакі́дванне**, -я, *н. і* **перакі́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (разм.).

**ПЕ́РАКІС**, -у, *м.* У хіміі — вышэйшая ступень акіслення элемента. *П. вадароду.* ‖ *прым.* **пе́ракісны**, -ая, -ае. *Перакісныя злучэнні.*

**ПЕРАКІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* Закітаваць нанава, інакш. *П. вокны на зіму.* ‖ *незак.* **перакіто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перакіто́ўванне**, -я, *н.*

**ПЕРАКЛА́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* перакласці. **2.** Тэкст, перакладзены з адной мовы на другую. *П. з балгарскай мовы.*

**ПЕРАКЛА́ДЗІНА**, -ы, *мн.* -ы, -дзін, *ж.* **1.** Папярочны брус, жэрдка і пад. **2.** Тое, што і *турнік.*

**ПЕРАКЛАДНЫ́**[1], -а́я, -о́е. У выразе: **на перакладных** (уст.) — у экіпажы з коньмі, якія мяняліся на паштовых станцыях. *Ехаць на перакладных.*

**ПЕРАКЛАДНЫ́**[2], -а́я, -о́е. Перакладзены з якой-н. мовы. *П. твор.*

**ПЕРАКЛА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст, які займаецца перакладамі з адной мовы на другую. *П. з польскай мовы.* ‖ *ж.* **перакла́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **перакла́дчыцкі**, -ая, -ае.

**ПЕРАКЛА́СЦІ**, -ладу́, -ладзе́ш, -ладзе́; -ладзём, -ладзяце́, -ладу́ць; -ла́ў, -ла́ла; -ладзі́; -ла́дзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Палажыць у іншае месца. *П. кнігі з паліцы ў шафу.* **2.** *перан., што.* Ускласці абавязкі, адказнасць і пад. на іншага. *П. усю работу на памочніка.* **3.** *што чым.* Укласці, змясціўшы ў прамежках што-н. *П. талеркі стружкамі.* **4.** *што.* Злажыць нанава, іначай. *П. комін.* **5.** *што.* Перадаць сродкамі іншай мовы. *П. з беларускай мовы на рускую.* ‖ *незак.* **перакладáць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **перакла́дваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—4 знач.). ‖ *наз.* **перакладáнне**, -я, *н.*, **перакла́дванне**, -я, *н.* (да 1—4 знач.) *і* **перакла́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 5 знач.).

**ПЕРАКЛЕ́ІЦЬ**, -е́ю, -е́іш, -е́іць; -е́ены; *зак., што.* **1.** Наклеіць, паклеіць нанава, у іншым месцы. *П. шпалеры.* **2.** Склеіць усё, многае. ‖ *незак.* **перакле́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перакле́йванне**, -я, *н. і* **перакле́йка**, -і, *ДМ* -клейцы, *ж.*

**ПЕРАКЛІКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *з кім.* Абменьвацца гучнымі воклічамі, словамі. *П. ў лесе.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Папераменна гучаць. *Пераклікаліся гудкі паравозаў.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., з кім-чым.* Мець падабенства, зблікацца сваімі прыметамі з чым-н. ‖ *аднакр.* **перакліќнуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **пераклі́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ПЕРАКЛІ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* **1.** *гл.* пераклікацца. **2.** *мн.* -і, -чак. Выклік па

прозвішчах, імёнах для праверкі прысутнасці пэўных асоб.

**ПЕРАКЛЮЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прыстасаванне для пераключэння чаго-н. *П. электрычнага току. П. дыяпазонаў прыёмніка.*

**ПЕРАКЛЮЧЫ́ЦЦА**, -ючу́ся, -ю́чышся, -ю́чыцца; *зак.* Накіравацца на што-н. іншае, новае; перайсці на іншы від працы, на другую работу. *Размова пераключылася на іншую тэму. П. на педагагічную работу.* ‖ *незак.* **пераключа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **пераключэ́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАКЛЮЧЫ́ЦЬ**, -ючу́, -ю́чыш, -ю́чыць; -ю́чаны; *зак.* **1.** *што.* Змяніць (напрамак і сілу якой-н. энергіі, руху і пад.). **2.** *перан., каго-што.* Надаць іншы напрамак чаму-н.; перавесці на новую работу, на новыя формы работ. *П. сваю ўвагу на іншы прадмет. П. цэх на іншую вытворчасць.* ‖ *незак.* **пераключа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пераключэ́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАКО́ЛВАЦЬ**[1] *гл.* пераколоць[1].

**ПЕРАКО́ЛВАЦЬ**[2] *гл.* пераколоць[2].

**ПЕРАКО́НАНАСЦЬ**, -і, *ж.* Тое, што і перакананасць.

**ПЕРАКО́НВАННЕ** *гл.* пераканаць.

**ПЕРАКО́НВАЦЦА** *гл.* пераканацца.

**ПЕРАКО́НВАЦЬ** *гл.* пераканаць.

**ПЕРАКО́ПВАННЕ** *гл.* перакапаць.

**ПЕРАКО́ПВАЦЬ** *гл.* перакапаць.

**ПЕРАКО́РМ** *і* **ПЕРАКО́РМЛІВАННЕ** *гл.* перакарміць.

**ПЕРАКО́РМЛІВАЦЬ** *гл.* перакарміць.

**ПЕРАКО́С**[1] *гл.* перакасіцца, перакасіць[1].

**ПЕРАКО́С**[2] *гл.* перакасіць[2].

**ПЕРАКО́СНЫ** *гл.* перакасіць[1].

**ПЕРАКО́ЎВАННЕ** *і* **ПЕРАКО́ЎКА** *гл.* перакаваць.

**ПЕРАКО́ЎВАЦЦА** *гл.* перакавацць.

**ПЕРАКО́ЎВАЦЬ** *гл.* перакаваць.

**ПЕРАКО́ЧВАННЕ** *гл.* перакаціць.

**ПЕРАКО́ЧВАЦЦА** *гл.* перакаціцца.

**ПЕРАКО́ЧВАЦЬ** *гл.* перакаціць.

**ПЕРАКО́ШВАННЕ**[1] *гл.* перакасіць[1].

**ПЕРАКО́ШВАННЕ**[2] *гл.* перакасіць[2].

**ПЕРАКО́ШВАЦЦА** *гл.* перакасіцца.

**ПЕРАКО́ШВАЦЬ**[1] *гл.* перакасіць[1].

**ПЕРАКО́ШВАЦЬ**[2] *гл.* перакасіць[2].

**ПЕРАКРО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., што.* **1.** Скроіць нанава; змяніць. *П. сукенку. Вайна перакроіла людскія лёсы* (перан.). **2.** Кроячы, разрэзаць, парэзаць усё, многае. *П. увесь матэрыял.* ‖ *незак.* **перакро́йваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **перакро́йванне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **перакро́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.* (да 1 знач.).

**ПЕРАКРУЦІ́ЦЦА**, -учу́ся, -у́цішся, -у́ціцца; *зак.* **1.** Павярнуцца кругом, працілеглым бокам ці канцом. *П. на аднойназе.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сапсавацца ад частага, празмернага закручвання або распасціся напалам, на часткі ад кручэння. *Кран перакруціўся. Алюмініевы дрот лёгка перакруціўся.* **3.** *перан.* Рэзка перамяніцца, перайначыцца (разм.). *Як жыццё перакруцілася.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Заблытацца, зблытацца. *Ніткі перакруціліся.* ‖ *незак.* **перакру́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАКРУЦІ́ЦЬ**, -учу́, -у́ціш, -у́ціць; -у́чаны; *зак., што.* **1.** Павярнуць кругом, працілеглым бокам, канцом. *П. педалі.* **2.** Звіць вельмі туга, крута; сапсаваць празмерным закручваннем. *П. вужышча. П. кран.* **3.** Наматаць на што-н. другое або іначай. *П. заколку ў валасах.* **4.** *перан.* Перайначыць, зрабіць на свой лад (разм.). *Новыя абставіны ўсё перакруцілі.* **5.** *перан.* Сказіць, змяніць змест, форму чаго-н. (разм.). *П. чые-н. словы.* ‖ *незак.* **перакру́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАКРЫВІ́ЦЦА**, -ыўлю́ся, -ы́вішся, -ы́віцца; *зак.* **1.** Стаць крывым, несіметрычным; перакасіцца. *Страха перакрывілася.* **2.** Скрывіцца ад болю, страху і пад. *Твар перакрывіўся ад болю.*

**ПЕРАКРЫВІ́ЦЬ**, -ыўлю́, -ы́віш, -ы́віць; -ы́ўлены; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць крывым, перакасіць. *П. раму.* **2.** звычайна *безас., каго-што.* Надаць скрыўлены выраз (твару, губам). *Ад болю перакрывіла твар.* **3.** *каго.* Перадражніць, падаць у смешным выглядзе. ‖ *незак.* **перакрыўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПЕРАКРЫЖАВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Месца, дзе перасякаецца, перакрыжоўваецца што-н. *На перакрыжаванні дарог.*

**ПЕРАКРЫЖАВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які перасякаецца крыж-накрыж. *Перакрыжаваная рыфма* (праз радок). **2.** *перан.* Які сыходзіцца з розных бакоў у адно месца. *П. агонь. П. допыт* (некалькімі асобамі адразу). *Перакрыжаванае апыленне.*

**ПЕРАКРЫЖАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -жу́ецца; *зак.* **1.** Размясціцца накрыж, скрыжавацца. *Вуліцы перакрыжаваліся.* **2.** *перан.* Сутыкнуцца, пераплесціся. *Інтарэсы перакрыжаваліся.* ‖ *незак.* **перакрыжо́ўвацца**, -аецца.

**ПЕРАКРЫЖАВА́ЦЬ**, -жу́ю, -жу́еш, -жу́е; -жу́й; -жава́ны; *зак., што.* **1.** Пакласці, правесці, перавязаць што-н. накрыж. *П. рамянямі скрынку.* **2.** *перан.* Сутыкнуць, пераплесці; скасаваць. *Вайна перакрыжавала нашы лёсы.* ‖ *незак.* **перакрыжо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАКРЫ́ЦЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Гарызантальная нясучая канструкцыя ў будынку, якая раздзяляе паверхі. *Жалезабетоннае п.*

**ПЕРАКРЫ́ЦЬ**, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак.* **1.** *што.* Накрыць нанава. *П. дах.* **2.** *перан., каго-што.* Перавысіць якія-н. паказчыкі, вынікі і пад., апярэдзіць. *П. норму.* **3.** *перан., што.* Закрыць для руху, цячэння, прыкрыць. *П. шлях. П. ваду.* ‖ *незак.* **перакрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перакрыццё**, -я́, *н.*

**ПЕРАКРЫЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *зак., каго-што.* Заглушыць сваім крыкам голас другога, другіх. *Цяжка п. натоўп.* ‖ *незак.* **перакры́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАКРЭ́СЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Закрэсліць зусім, цалкам або ў многіх месцах. *П. старонку. П. рукапіс. П. былое сяброўства* (перан.: звесці на нішто яго ролю, значэнне). ‖ *незак.* **перакрэ́сліваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **перакрэ́сліванне**, -я, *н.*

**ПЕРАКУЛІ́ЦЦА**, -кулю́ся, -ку́лішся, -ку́ліцца; *зак.* (разм.). **1.** Перавярнуцца дном, нізам уверх ці паваліцца набок, на спіну, абярнуцца. *Павозка перакулілася.* **2.** *цераз што.* Перавярнуцца цераз галаву або перакуліцца цераз каго-, што-н. *П. цераз плот.* ‖ *незак.* **перакýльвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАКУЛІ́ЦЬ**, -улю́, -у́ліш, -у́ліць; -у́лены; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Перавярнуць уверх дном, нізам або паваліць набок, на спіну. *П. човен.* **2.** *каго-што цераз каго-што.* Нагнуўшы, перакінуць цераз каго-, што-н. *П. цераз борт.* **3.** *што.* Выпіць да дна. *П. чарку.* ‖ *незак.* **перакýльваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАКУ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Такі, які можа перакульвацца пры разгрузцы. *П. кузаў.*

**ПЕРАКУПІ́ЦЬ**, -уплю́, -у́піш, -у́піць; -у́плены; *зак., каго-што.* **1.** Купіць раней купленае кім-н. другім. **2.** Купіць, перашкодзіўшы зрабіць гэта іншаму. *Нагледзела сабе паліто, на жаль, перакупілі.* ‖ *незак.* **перакупля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **перакýпка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (да 2 знач.).

**ПЕРАКУ́ПШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто купляе што-н. на перапродаж. ‖ *ж.* **перакýпшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПЕРАКУ́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). **1.** Кароткі перапынак для курэння. *Канчай п.!* **2.** *перан.* Невялікі адпачынак, перапынак у рабоце.

**ПЕРАКУРЫ́ЦЬ**, -ур́у, -у́рыш, -у́рыць; -у́раны; *зак.* **1.** *што.* Курачы, паспрабаваць (многа гатункаў тытуню). *П. нямала розных цыгарэт.* **2.** Многа накурыўшыся, прычыніць сабе шкоду. *Перакурыў, цяпер баліць галава.* **3.** Зрабіць кароткі перапынак для курэння (разм.). ‖ *незак.* **перакýрваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАКУСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Пакусаць, скусаць (многіх, у многіх месцах). *Сабака перакусаў многіх прахожых.*

**ПЕРАКУСІ́ЦЬ**, -ушу́, -у́сіш, -у́сіць; -у́шаны; *зак.* **1.** *што.* Кусаючы, раздзяліць. *П. саломінку.* **2.** *чаго* і *без дап.* З'есці чаго-н. нямнога, паесці збольшага; закусіць. *П. перад адыходам.* ‖ *незак.* **перакýсваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перакýсванне**, -я, *н. і* **перакýска**, -і, *ДМ* -кýсцы, *ж.* (да 2 знач.).

**ПЕРАКУ́СКА**, -і, *ДМ* -кýсцы, *ж.* **1.** *гл.* перакусіць. **2.** *мн.* -і, -сак. Ежа, якой перакусваюць.

**ПЕРАЛАВІ́ЦЬ**, -лаўлю́, -ло́віш, -ло́віць; -ло́ўлены; *зак., каго (што).* Злавіць усіх, многіх. *П. уцекачоў.*

**ПЕРАЛАЖЫ́ЦЬ**, -лажу́, -ло́жыш, -ло́жыць; -ло́жаны; *зак., каго-што.* Тое, што і *перакласці* (у 1—4 і 6 знач.). ‖ *наз.* **пералажэ́нне**, -я, *н.* (*гл.* перакласці ў 6 знач.).

**ПЕРАЛА́ЗІЦЬ**[1] *гл.* пералезці.

**ПЕРАЛА́ЗІЦЬ**[2], -ла́жу, -ла́зіш, -ла́зіць; *зак.* (разм.). Лазячы, пабыць усюды. *П. усе куткі.*

**ПЕРАЛАМА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ло́міцца; *зак.* **1.** Паламацца напалам. *Палка пераламалася.* **2.** Паламацца — пра ўсё, многае. *Крэслы паламаліся.* ‖ *незак.* **перало́мліваццa**, -аецца (да 1 знач.) *і* **перало́мвацца**, -аецца (да 1 знач.).

**ПЕРАЛАМА́ЦЬ**, -ламлю́, -ло́міш, -ло́міць; -ламі́; -лама́ны; *зак.* **1.** *што.* Зламаць напалам, на часткі. *П. палку.* **2.** *што.* Паламаць усё, многае. *Вецер пераламаў усе дрэвы.* **3.** *перан., каго-што*: Перамяніць чый-н. характар, звычкі, паводзіны, прымусіць стаць іншым. *Гэтага чалавека цяжка п. П. свой характар.* ‖ *незак.* **перало́мліваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 3 знач.) *і* **перало́мваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ПЕРАЛАМЛЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Тое, што і *праламленне.*

**ПЕРАЛАПА́ЦІЦЬ**, -па́чу, -па́ціш, -па́ціць; -па́чаны; *зак., што* (спец.). Перасыпаць (зерне, бульбу), перакідаючы лапатай з аднаго месца на другое для засцярогі ад прэння. ‖ *незак.* **пералапа́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАЛА́ЯЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; -а́йся; *зак.* Палаяцца паміж сабой ці з усімі, многімі. *Суседзі пералаяліся.*

**ПЕРАЛЕ́ГЧЫ**, -ля́гу, -ля́жаш, -ля́жа; -ля́жам, -ля́жаце, -ля́гуць; -лёг, -ле́гла; -ля́ж; *зак.* Легчы інакш або на другое месца. *П. з канапы на ложак.*

**ПЕРАЛЕ́ЖАЦЬ** *гл.* пераляжаць.

**ПЕРАЛЕ́ЗЦІ**, -зу, -зеш, -зе; -е́з, -е́зла; -е́зь; *зак., што* і *цераз што.* Перамясціцца, карабкаючыся цераз што-н. *П. плот (цераз плот).* ‖ *незак.* **перала́зіць**, -ла́жу, -ла́зіш, -ла́зіць.

**ПЕРАЛЕ́САК**, -ску, *мн.* -скі, -скаў, *м.* Невялікі лес, аддзелены полем ад іншых лясных участкаў, або рэдкі ці малады лес паміж ляснымі масівамі.

**ПЕРАЛЕ́ТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; *зак.* (разм.). Пражыць, перабыць лета.

**ПЕРАЛЕ́ТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Дзіцяня свойскай жывёлы паўгадавога ўзросту (якое толькі пералетавала).

**ПЕРАЛЁТ**[1], -у, *М* -лёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* пераляцець. **2.** Перамяшчэнне птушак у месцы або з месца зімовак. *Асенні п.* **3.** Падзенне кулі, снарада (і ўвогуле таго, што кінута) далей цэлі. ‖ *прым.* **пералётны**, -ая, -ае.

**ПЕРАЛЁТ**[2], -у, *М* -лёце, *м.* Кармавая і лекавая расліна сямейства бабовых з жоўтымі кветкамі, сабранымі ў суквецце. ‖ *прым.* **пералётавы**, -ая, -ае.

**ПЕРАЛЁТНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пералёт[1]. **2.** Пра птушак: якія адлятае на зіму ў вырай. *Пералётныя птушкі.*

**ПЕРАЛІВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* пераліцца. **2.** Блішчаць, мяняючы адценні, колеры або гучаць з пералівамі. *Фарбы пераліваліся на сонцы. Голас пераліваўся і дрыжэў.*

**ПЕРАЛІВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* пераліць[1], пераліць[2]. **2.** Тое, што і *пераліваца* (у 2 знач.).

**ПЕРАЛІ́ВІСТЫ**, -ая, -ае. З пералівамі (пра гукі, святло). *Пералівістыя пераборы гармоніка. П. колер.* ‖ *наз.* **пералі́вістасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАЛІ́К**, -у, *м.* **1.** *гл.* пералічыць. **2.** Спіс з пералічэннем чаго-н. *П. кніг.*

**ПЕРАЛІ́Ў**, -ліву, *мн.* -лі́вы, -лі́ваў, *м.* Пераход ад аднаго адцення колеру, тону да другога. *Мяккія пералівы святла. Пералівы голасу.* ‖ *прым.* **пералі́ўны**, -ая, -ае.

**ПЕРАЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -лье́цца *і* -ліе́цца; -лі́ўся, -ліла́ся, -ло́ся; *зак.* **1.** Перамясціцца з аднаго месца на другое (пра вадкасць). **2.** Перапоўніўшы ёмішча, выліцца. *П. цераз край.* ‖ *незак.* **перaліва́цца**, -а́ецца.

**ПЕРАЛІ́ЦЬ**[1], -лью́, -лье́ш, -лье́; -льём, -льяце́, -лью́ць *і* -лію́, -ліе́ш, -ліе́; -ліём, -ліяце́, -лію́ць; -лі́ў, -ліла́, -ло́; -лі́; -лі́ты; *зак., што.* **1.** Выліць з аднаго ёмішча ў другое. *П. малако са збана ў шклянкі. П. кроў параненаму* (увесці чужую кроў з лячэбнай мэтай). **2.** Наліць звыш меры. *П. цераз край.* ‖ *незак.* **пераліва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перaліва́нне**, -я, *н. П. крыві.* ‖ *прым.* **пераліўны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**ПЕРАЛІ́ЦЬ**[2], -лью́, -лье́ш, -лье́; -льём, -льяце́, -лью́ць *і* -лію́, -ліе́ш, -ліе́; -ліём, -ліяце́, -лію́ць; -лі́ў, -ліла́, -ло́; -лі́; -лі́ты; *зак., што.* Перарабіць ліццём. *П. статую.* ‖ *незак.* **пераліва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пералі́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЕРАЛІЧЫ́ЦЬ**, -ічу́, -і́чыш, -і́чыць; -і́чаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Злічыць нанава. *П. кнігі паўторна.* **2.** *каго-што.* Злічыць адно за другім усё, усіх. *П. прысутных.* **3.** *каго-што.* Назваць, упамянуць усіх, усё. *П. недахопы.* **4.** *што.* Падлічваючы, падаць у другіх велічынях, адзінках. *П. фунты ў кілаграмы.* **5.** *што.* Перавесці, залічыўшы на іншы рахунак. *П. пяць мільёнаў рублёў на будаўніцтва.* ◊ **Пералічыць на пальцах** *каго-што* (разм.) — назваць (пра колькасць каго-, чаго-н.). ‖ *незак.* **пералі́чваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—4 знач.) *і* **перaліча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2—5 знач.); *наз.* **пералічэ́нне**, -я, *н. Плаціць па пералічэнні.* ‖ *наз.* **пералі́к**, -у, *м.*

**ПЕРАЛІЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* пералічыць. **2.** Пералічаная, пераведзеная каму-н. сума (спец.). *Паступіла п. на бягучы рахунак.*

**ПЕРАЛО́М**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Месца, па якім што-н. пераламана. *Змацаваць вясло на пераломе.* **2.** Парушэнне цэласці косці ў чалавека, жывёліны. *Закрыты п. бядра. Асколачны п. косці.* **3.** *перан.* Рэзкая змена ў развіцці чаго-н. *П. у жыцці. На пераломе.* ‖ *прым.* **перало́мны**, -ая, -ае (да 3 знач.). *П. перыяд гісторыі.*

**ПЕРАЛО́МВАЦЦА** *і* **ПЕРАЛО́МЛІВАЦЦА** *гл.* пераламацца.

**ПЕРАЛО́МВАЦЬ** *гл.* пераламаць.

**ПЕРАЛЯЖА́ЦЬ**, -ляжу́, -ляжы́ш, -ляжы́ць; -ляжы́м, -лежыце́, -ляжа́ць; -ляжы́ *і* **ПЕРАЛЕ́ЖАЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; *зак.* **1.** Праляжаць надта доўга. *П. на сонцы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сапсавацца ад доўгага ляжання. *Агуркі пераляжалі.*

**ПЕРАЛЯЦЕ́ЦЬ**, -лячу́, -ляці́ш, -ляці́ць; -ляці́м, -лецце́, -ляця́ць; -ляці́; *зак.* **1.** *што* і *цераз што.* Летучы, перамясціцца, адолець якую-н. прастору. *П. з Еўропы ў Амерыку. П. горы* або *цераз горы.* **2.** Летучы, апынуцца па другі бок чаго-н. *Мяч пераляцеў цераз вароты.* **3.** *што* і *без дап.* Праляцець далей, чым трэба. *П. лінію пасадкі. Снарад пераляцеў.* ‖ *незак.* **пералята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пералёт**, -у, *М* -лёце, *м.*

**ПЕРАМАГАНО́СНЫ**, -ая, -ае. Які завяршыўся перамогай або нясе перамогу, увасабляе перамогу. *Пераманосная вайна.* ‖ *наз.* **перамагано́снасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАМАГЧЫ́**, -магу́, -мо́жаш, -мо́жа; -мажы́; -мо́жаны; *зак.* **1.** *перан., каго-што* і *без дап.* Атрымаць перамогу над кім-, чым-н. *П. праціўніка. П. ў баі.* **2.** *перан., што.* Тое, што і *пераадолець* (кніжн.). *П. нястачы. П. страх.* ‖ *незак.* **перамага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАМА́ЗАЦЦА**, -ма́жуся, -ма́жашся, -ма́жацца; -ма́жся; *зак.* Вымазаўшыся, стаць брудным. *П. сажай. Уся вопратка перамазалася.* ‖ *незак.* **перама́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАМА́ЗАЦЬ**, -ма́жу, -ма́жаш, -ма́жа; -ма́ж; -ма́заны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць брудным, запэцкаць. *П. рукі чарнілам.* **2.** *што.* Замазаць, намазаць зноў або ўсё, многае. *П. аконныя рамы. П. усе падшыпнікі салідолам.* ‖ *незак.* **перама́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перама́званне**, -я, *н. і* **перама́зка**, -і, -зцы, *ж.* (да 2 знач.).

**ПЕРАМАЛО́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ме́лецца; *зак.* Здрабніцца ў муку. *Перамелецца — мука будзе* (прыказка: усё пройдзе, уладзіцца, усе непрыемнасці забудуцца). ‖ *незак.* **перамо́лвацца**, -аецца.

**ПЕРАМАЛО́ЦЬ**, -мялю́, -ме́леш, -ме́ле; -мялі́; -мо́латы; *зак., што.* Здрабніць у муку (зерне). *П. варожыя сілы* (перан.: знішчыць). ‖ *незак.* **перамо́лваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАМАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны; *зак.* Малюючы, зняць копію чаго-н.; намаляваць нанава. *П. дэкарацыі.* ‖ *незак.* **перамалёўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перамалёўванне**, -я, *н. і* **перамалёўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.).

**ПЕРАМАНІ́ЦЬ**, -маню́, -ма́ніш, -ма́ніць; -ма́нены; *зак., каго-што* (разм.). Перавесці да сябе (на працу, у свой калектыў, у другі лагер і пад.), прывабіўшы якой-н. выга-

дай, перавагамі. *П. спецыяліста.* ‖ *незак.* **пераманьваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАМАРГНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нёмся, -няцеся, -нуцца; -ніся; *зак.* Падмаргнуць адзін другому з якой-н. мэтай. *П. з сяброўкай.* ‖ *незак.* **пераморгвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАМАТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Наматаць нанава ці на што-н. іншае. *П. кінастужку.* ‖ *незак.* **перамотваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перамотванне**, -я, *н. і* **перамотка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**ПЕРАМАЎЛЯЦЦА** *гл.* перамовіцца.

**ПЕРАМАХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -нём, -няце, -нуць; -ні; *зак., што* або *цераз што* (разм.). Лёгка, шырокім скачком пераскочыць. *П. цераз агароджу.* ‖ *незак.* **перамахваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАМЕНА**, -ы, *ж.* **1.** *гл.* перамяніць. **2.** *мн.* -ы, -мен. Змена, паварот да чаго-н. іншага. *Гэты год прынёс многа перамен* (разм.). *Рэзкая п. тэмпературы.*

**ПЕРАМЕНЛІВЫ**, -ая, -ае. Які часта мяняецца, зменлівы. *П. вецер. П. характар.* ‖ *наз.* **пераменлівасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАМЕННЫ**, -ая, -ае. Які мяняецца, няўстойлівы, з пераменамі. *Пераменнае надвор'е. П. ток* (які перыядычна мяняе сілу і напрамак). *Пераменная велічыня* і *пераменная* (наз.) — пра велічыню, якая можа па ўмовах задачы набываць розныя значэнні. *П. капітал* (частка капіталу, якая затрачваецца на наём рабочай сілы і змяняецца ў працэсе вытворчасці).

**ПЕРАМЕНШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., што.* Падаць у меншых памерах, чым у рэчаіснасці. *П. цяжкасці.* ‖ *незак.* **перамяншаць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перамяншэнне**, -я, *н.*

**ПЕРАМЕНЬВАЦЬ** *гл.* перамяніць.

**ПЕРАМЕРАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Змераць або памераць нанава, яшчэ раз. *П. куплены адрэз.* **2.** Змераць, памераць усё, многае. *П. усе ўчасткі.* **3.** *перан.* Шмат прайсці, пахадзіць па якой-н. тэрыторыі (разм.). *Многа дарог мне прыйшлося п. сваімі нагамі.* ‖ *незак.* **перамяраць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.) *і* **перамерваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАМЕРЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -мёрз, -мерзла; *зак.* **1.** Моцна змерзнуць, азябнуць. *П. у дарозе.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Загінуць ад марозу (пра многіх, многае). *Усе кветкі перамерзлі.*

**ПЕРАМЕЦІЦЬ**, -мечу, -меціш, -меціць; -мечаны; *зак., каго-што.* **1.** Памеціць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. бялізну.* **2.** Нанава паставіць меткі на кім-, чым-н. ‖ *незак.* **перамячаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАМЕШВАЦЦА** *гл.* перамяшацца.

**ПЕРАМЕШВАЦЬ** *гл.* перамясіць, перамяшаць.

**ПЕРАМЁРЗЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які перамёрз. *Перамёрзлая трава.*

**ПЕРАМЁТ**, -а, *М* -мёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Рыбалоўная сетка з кручкамі, якая нацягваецца на калкі упоперак цячэння ракі.

**ПЕРАМІГНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нёмся, -няцеся, -нуцца; -ніся; *зак.* (разм.). Тое, што і *перамаргнуцца.* ‖ *незак.* **пераміргвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАМІР'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Часовае спыненне ваенных дзеянняў па ўзаемнай згодзе бакоў. *Заключыць п.*

**ПЕРАМНОЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* Памножыць лікі адзін на другі. ‖ *незак.* **перамнажаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАМОВІЦЦА**, -моўлюся, -мовішся, -мовіцца; *зак., з кім* (разм.). Сказаць адзін другому некалькі слоў, нядоўга пагаварыць. *Няма з кім словам п.* ‖ *незак.* **перамаўляцца**, -яюся, -яешся, -яецца.

**ПЕРАМОГА**, -і, *ДМ* -мозе, *мн.* -і, -мог, *ж.* **1.** Поспех у бітве, вайне, поўнае паражэнне праціўніка. *Дабіцца перамогі над ворагам.* **2.** Поспех у барацьбе за што-н., ажыццяўленне, дасягненне чаго-н. у выніку барацьбы, пераадолення чаго-н. *П. ў спаборніцтве.* ◊ **Пірава перамога** (кніжн.) — перамога, здабытая вялікімі ахвярамі і таму роўная паражэнню [па імені эпірскага цара Піра].

**ПЕРАМОЖНЫ**, -ая, -ае (высок.). Які мае адносіны да перамогі, перамаганосны. *П. салют. Да пераможнага канца* (да таго часу, пакуль справа не завершыцца ўдачай).

**ПЕРАМОЖЦА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто перамог, дабіўся перамогі. *Народ-п. П. шахматнага турніру.*

**ПЕРАМОЛВАЦЦА** *гл.* перамалоцца.

**ПЕРАМОЛВАЦЬ** *гл.* перамалоць.

**ПЕРАМОРГВАЦЦА** *гл.* перамаргнуцца.

**ПЕРАМОТВАННЕ** *і* **ПЕРАМОТКА** *гл.* пераматаць.

**ПЕРАМОТВАЦЬ** *гл.* пераматаць.

**ПЕРАМУДРАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* (разм.). Занадта намудрыць.

**ПЕРАМЫЦЬ**, -мыю, -мыеш, -мые; -мыты; *зак., каго-што.* **1.** Вымыць нанава. *П. сподак.* **2.** Вымыць усё, многае, усіх, многіх. *П. увесь посуд.* ‖ *незак.* **перамываць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАМЫЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Злучальнае прыстасаванне паміж чым-н. *Каменная п.* **2.** Воданепранікальная загародка на земляных і будаўнічых работах, якая не дапускае прытоку вады куды-н. *Насыпная п.* **3.** Вузкая палоска, якая злучае што-н. *П. паміж канавамі.*

**ПЕРАМЯНІЦЦА**, -мянюся, -менішся, -меніцца; *зак.* Стаць іншым, змяніцца. *Характар перамяніўся. Надвор'е перамянілася.*

**ПЕРАМЯНІЦЬ**, -мяню, -меніш, -меніць; -менены; *зак., каго-што.* **1.** Замяніць адно другім, змяніць. *П. бялізну. П. тэму размовы.* **2.** Надаць іншую форму, перайначыць. *П. адносіны.* ‖ *незак.* **пераменьваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **перамяняць**, -яю, -яеш, -яе. ‖ *наз.* **перамена**, -ы, *ж.*

**ПЕРАМЯНШАЦЬ** *гл.* пераменшыць.

**ПЕРАМЯНШЭННЕ** *гл.* пераменшыць.

**ПЕРАМЯРАЦЬ** *гл.* перамераць.

**ПЕРАМЯСІЦЬ**, -мяшу, -месіш, -месіць; -мешаны; *зак., што.* Расціраючы, размінаючы, ператварыць у аднародную масу. *П. гліну.* ‖ *незак.* **перамешваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАМЯСЦІЦЦА**, -мяшчуся, -месцішся, -месціцца; *зак.* Перасунуўшыся, заняць другое месца, размясціцца ў іншым месцы. *Полк перамясціўся ў другі горад.* ‖ *незак.* **перамяшчацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАМЯСЦІЦЬ**, -мяшчу, -месціш, -месціць; -мешчаны; *зак., каго-што.* Паставіць, перавесці ў іншае месца. *П. шафу. П. брыгаду на другую будоўлю.* ‖ *незак.* **перамяшчаць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перамяшчэнне**, -я, *н.*

**ПЕРАМЯЧАЦЬ** *гл.* перамеціць.

**ПЕРАМЯШАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Змяшацца або перамясіцца (унутры чаго-н., пра асобныя прадметы), пераблытацца. *Мука перамяшалася з крупамі. У галаве ўсё перамяшалася* (перан.). ‖ *незак.* **перамешвацца**, -аецца.

**ПЕРАМЯШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Мяшаючы, злучыць разам living рознае або памяняць месцамі часткі чаго-н. аднароднага. *П. пясок з цэментам. П. паперы ў справе.* ‖ *незак.* **перамешваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАМЯШЧАЦЦА** *гл.* перамясціцца.

**ПЕРАМЯШЧАЦЬ** *гл.* перамясціць.

**ПЕРАМЯШЧЭННЕ** *гл.* перамясціць.

**ПЕРАНАПРУЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *зак.* Вельмі моцна, празмерна напружыцца. ‖ *незак.* **перанапружвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **перанапружванне**, -я, *н.*

**ПЕРАНАПРУЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* Вельмі моцна, празмерна напружыць. *П. сілы.* ‖ *незак.* **перанапружваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перанапружванне**, -я, *н.*

**ПЕРАНАСЕЛЕНЫ**, -ая, -ае. Населены густа, звыш меры. *П. раён.* ‖ *наз.* **перанаселенасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАНАСІЦЬ**, -нашу, -носіш, -носіць; -ношаны; *зак.* **1.** *каго-што* і *чаго.* Перанесці, аднесці куды-н. за некалькі прыёмаў. *П. цэглу пад павець. Колькі ён грыбоў за лета і восень перанасіў.* **2.** *што.* Знасіць вялікую колькасць чаго-н. (адзення, абутку). **3.** *каго (што).* Пра цяжарных: пранасіць дзіця больш за належны тэрмін. ‖ *незак.* **пераношваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАНАСЯЛЕННЕ**, -я, *н.* Адносны лішак насельніцтва.

**ПЕРАНАЧАВАЦЬ** *гл.* начаваць.

**ПЕРАНЕСЦІ**, -нясу, -нясеш, -нясе; -нясём, -несяце, -нясуць; -нёс, -несла; -нясі; -несены; *зак.* **1.** *каго-што.* Несучы, перамясціць цераз якую-н. прастору. *П. хлапчука цераз ручай.* **2.** *каго-што.* Памясціць у іншае месца. *П. кветкі з пакоя ў сад.*

3. *што.* Аддзяліць частку слова для пераносу ў наступны радок. *П. апошні склад слова.* **4.** *што.* Адкласці на другі час. *П. пасяджэнне на вечар.* **5.** *што.* Зведаць, перажыць, перацярпець. *П. запаленне лёгкіх.* || *незак.* **перано́сіць**, -но́шу, -но́сіш, -но́сіць. ◊ **Не пераносіць** *каго-чаго* (разм.) — адчуваць непрыязнасць да каго-, чаго-н. *Я не пераношу гэтага чалавека.* || *наз.* **пераняс́енне**, -я, *н.* (да 4 знач.) *і* **перано́ска**, -і, *ДМ* -но́сцы, *ж.* (да 1, 2 і 4 знач.; разм.).

**ПЕРАНЕ́СЦІСЯ**, -нясу́ся, -нясе́шся, -нясе́цца; -нясёмся, -несяцёся, -нясу́цца; -нёсся, -не́слася; -нясі́ся; *зак.* Хутка перамясціцца. *За гадзіну перанёсся на самалёце з Мінска ў Санкт-Пецярбург. П. ў думках у мінулае* (перан.). || *незак.* **перано́сіцца**, -но́шуся, -но́сішся, -но́сіцца.

**ПЕРАНІЦАВА́ЦЬ**, *гл.* ніцаваць.

**ПЕРАНІЦО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *ніцаваць.* || *наз.* **пераніцо́ўванне**, -я, *н. і* **пераніцо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЕРАНО́С**, -у, *м.* **1.** *гл.* перанесці. **2.** Знак у выглядзе рыскі (-) на месцы падзелу слова, частка якога пераносіцца на наступны радок. *Правілы пераносу слоў.*

**ПЕРАНО́СІЦЦА** *гл.* перанесціся.

**ПЕРАНО́СІЦЬ** *гл.* перанесці.

**ПЕРАНО́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прыстасаваны для пераносу. *Пераносная радыёстанцыя.* **2.** Пра сэнс, значэнне слова, выразу: не літаральны, не прамы, метафарычны. || *наз.* **перано́снасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПЕРАНО́ССЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Верхняя частка носа ніжэй ілба паміж вачамі.

**ПЕРАНО́СЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто пераносіць, перадае, распаўсюджвае што-н. *Камар — п. малярыі. П. чутак.* || *ж.* **перано́счыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПЕРАНУМАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Панумараваць усё, многае. *П. усе старонкі рукапісу.* **2.** Пранумараваць нанава. *П. апошнія старонкі.* || *незак.* **перанумаро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАНЯ́ТЛІВЫ**, -ая, -ае. Здольны пераймаць, хутка засвойваць. *Перанятлівае дзіця.* || *наз.* **пераня́тлівасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАНЯ́ЦЬ**, перайму́, пяро́ймеш, пяро́йме; пяро́ймем, пяро́ймеце, пяро́ймуць; пераня́ў, -няла́, -ло́; перайме́; пераня́ты; *зак.* **1.** *што.* Запазычыць, унаследаваць, зрабіць прывычным для сябе. *П. вопыт. П. дурныя звычкі.* **2.** *каго-што.* Перахапіць, перагарадзіць шлях каму-, чаму-н. *П. статак.* || *незак.* **пераймáць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **пераймáнне**, -я, *н.*

**ПЕРАПАВІ́ЦЬ**, -паўю́, -паўе́ш, -паўе́; -паўём, -паўяце́, -паўю́ць; -паві́; -паві́ты; *зак., каго-што.* Спавіць нанава, інакш. || *незак.* **перапавіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАПА́Д**, -а *і* -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** -а. Ступеньчатае збудаванне для рэгулявання руху вады ў вадасцёку з нахіленым дном. **2.** -у. Розніца паміж верхнім і ніжнім узроўнем (вады, тэмпературы, ціску і пад.). *П. ціску.*

**ПЕРАПА́ДАЦЬ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -ае; *зак.* (разм.). Упасці адзін за адным — пра ўсё, многае або ўсіх, многіх.

**ПЕРАПАДА́ЦЬ** *гл.* перапасці.

**ПЕРАПАДЛІЧЫ́ЦЬ**, -ічу́, -і́чыш, -і́чыць; -і́чаны; *зак., каго-што.* Зрабіць падлік нанава. || *незак.* **перападлі́чваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **перападлі́к**, -у, *м. П. тавараў;* *прым.* **перападліко́вы**, -ая, -ае.

**ПЕРАПАДРЫХТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *ж.* Падрыхтоўка з мэтай удасканалення ў чым-н. *Курсы перападрыхтоўкі.*

**ПЕРАПАІ́ЦЬ**, -паю́, -по́іш, -по́іць; -по́ены; *зак., каго (што).* **1.** Празмерна напаіць, апаіць. *П. цяля.* **2.** Напаіць спіртнымі напіткамі ўсіх, многіх. *П. гасцей.* || *незак.* **перапо́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАПАКУ́ТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; *зак.* **1.** Зазнаць многа пакут. *Ён шмат перапакутаваў за жыццё.* **2.** Перажыўшы што-н., кончыць пакутаваць. *П. страту дарагога чалавека.*

**ПЕРАПАЛАСКА́ЦЬ**, -лашчу́, -ло́шчаш, -ло́шча; -лашчы́; -ласка́ны; *зак., што.* **1.** Прапаласкаць яшчэ раз, паўторна. *П. хустачку.* **2.** Папаласкаць усё, многае. *П. усю бялізну.*

**ПЕРАПАЛІ́ЦЬ**, -алю́, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены; *зак., што.* **1.** Празмерным абпальваннем, награваннем, сапсаваць. *П. цэглу.* **2.** Раздзяліць на часткі ўздзеяннем агню, едкім рэчывам. *П. вяроўку.* **3.** Спаліць усё, многае. *П. усе дровы.* **4.** Расходаваць звыш меры (паліва, гаручае). *П. бензін.* **5.** Перапрацаваць з дапамогай агню, падвергнуць тэрмічнай апрацоўцы (спец.). *П. руду.* || *незак.* **перапа́льваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **перапа́льванне**, -я, *н. і* **перапа́л**, -у, *м.* (да 1 знач.).

**ПЕРАПА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што і *перастрэлка. Рота трапіла ў перапалку.* **2.** *перан.* Крыклівая спрэчка, лаянка. *Сямейная п.*

**ПЕРАПАЛО́СЫ**, -ая, -ае (разм.). У палосы, плямы рознага колеру (пра масць жывёлы).

**ПЕРАПАЛО́Х**, -у, *м.* Агульны нечаканы спалох, збянтэжанасць, паніка. *Падняўся п.*

**ПЕРАПАЛО́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Моцна спалохацца. *Насмерць перапалохаўся.*

**ПЕРАПАЛО́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго (што).* Моцна спалохаць.

**ПЕРАПАМПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны; *зак., што.* Пампуючы, перамясціць. *П. газ у балоны.* || *незак.* **перапампо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **перапампо́ўванне**, -я, *н.*

**ПЕРАПА́СЦІ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -падзе́; -па́ў, -па́ла; *зак.* **1.** Выпасці (у 3 знач.), прайсці зрэдку (пра дождж, снег і пад.). *Перапалі дажджы.* **2.** *асаб.* і *безас., каму.* Дастацца на чыю-н. долю (звычайна пра нямногае). *Мне таксама крыху перапала.* || *незак.* **перапада́ць**, -а́е.

**ПЕРАПАЎЗЦІ́**, -зу́, -зе́ш, -зе́; -зём, -зяце́, -зу́ць; -по́ўз, -паўзла́, -ло́; -паўзі́; *зак.* **1.** *што і цераз што.* Перамясціцца паўзком цераз якую-н. прастору. *П. дарогу* або *цераз дарогу.* **2.** Прапаўзці з аднаго месца ў другое. *П. ва ўкрыцце.* || *незак.* **перапаўза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАПАЎНЕ́ННЕ** *гл.* перапоўніцца, перапоўніць.

**ПЕРАПАЎНЯ́ЦЦА** *гл.* перапоўніцца.

**ПЕРАПАЎНЯ́ЦЬ** *гл.* перапоўніць.

**ПЕРАПАХАВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́еш; -а́ны; *зак., каго-што.* Тое, што і *перахаваць*[2] (у 1 знач.). || *наз.* **перапахава́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАПЕ́РЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Вельмі наперчыць. *П. боршч.* || *незак.* **перапе́рчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАПЕ́Ў**, -пе́ву, *мн.* -пе́вы, -пе́ваў, *м.* **1.** Паслядоўнае чаргаванне напеўных гукаў. *Птушыны п.* **2.** *перан.* Паўтарэнне вядомага, раней сказанага. *Перапевы старых ісцін.*

**ПЕРАПЕ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Пірог з хлебнага цеста, спечаны на скаварадзе. *Частавалі ад душы кіславатай перапечкай.*

**ПЕРАПЁЛАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Паляўнічы, які палюе на перапёлак. **2.** Невялікі ястраб, які корміцца перапёлкамі і іншымі дробнымі птушкамі.

**ПЕРАПЁЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Маленькая палявая пералётная птушка сямейства фазанавых з завостранымі крыламі і кароткім хвастом. || *прым.* **перапялі́ны**, -ая, -ае.

**ПЕРАПІЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак., што.* **1.** Пілуючы, раздзяліць на часткі. *П. бервяно.* **2.** Папілаваць усё, многае. *П. усе дровы.* || *незак.* **перапіло́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАПІСА́ЦЬ**, -ішу́, -і́шаш, -і́ша; -ішы́; -і́саны; *зак.* **1.** *што.* Напісаць нанава, скапіраваць. *П. апавяданне.* **2.** *каго-што.* Скласці спіс, рэестр каго-, чаго-н. *П. абсталяванне лабараторыі.* || *незак.* **перапі́сваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **перапі́сванне**, -я, *н. і* **перапі́ска**, -і, *ДМ* перапі́сцы, *ж.* (да 1 знач.).

**ПЕРАПІ́СВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Пісаць адзін аднаму пісьмы. *П. са знаёмым.* || *наз.* **перапі́сванне**, -я, *н. і* **перапі́ска**, -і, *ДМ* перапі́сцы, *ж.*

**ПЕРАПІ́СКА**, -і, *ДМ* перапі́сцы, *ж.* **1.** *гл.* перапісаць *і* перапісвацца. **2.** *мн.* -і, -сак. Збор пісем, напісаных і атрыманых кім-н. *Пазнаёміцца з перапіскай Якуба Коласа.*

**ПЕРАПІ́СЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто перапісвае што-н. || *ж.* **перапі́счыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПЕРАПІ́ЦЦА**, -п'ю́ся, -п'е́шся, -п'е́цца; -п'ёмся, -п'яце́ся, -п'ю́цца; -пі́ся; *зак.* Надта многа выпіўшы, стаць зусім п'яным (пра многіх). || *незак.* **перапіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПЕРАПІ́ЦЬ**, -п'ю́, -п'е́ш, -п'е́; -п'ём, -п'яце́, -п'ю́ць; -пі́; *зак.* **1.** *чаго* і *без дап.*

Выпіць лішне (звычайна алкаголю). **2.** *каго (што).* Выпіць больш за каго-н. (разм.). ‖ *незак.* **перапіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАПЛАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* Спланаваць нанава, змяніць план чаго-н. *П. забудову квартала.* ‖ *незак.* **перапланó́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перапланіро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЕРАПЛАЦІ́ЦЬ**, -лачу́, -ла́ціш, -ла́ціць; -ла́чаны; *зак., што.* **1.** *без дап.* Заплаціць больш, чым трэба. *П. за пакупку.* **2.** *чаго.* Заплаціць, выплаціць паступова за што-н. вялікую колькасць (грошай; разм.). *Колькі я грошай пераплаціла за кнігі.* ‖ *незак.* **перапла́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перапла́та**, -ы, *ДМ* -лаце́, *ж.* *і* **перапла́чванне**, -я, *н.*

**ПЕРАПЛЕ́СЦІ**, -ляту́, -ляце́ш, -ляце́; -ляцём, -лецяце́, -ляту́ць; -лёў, -ляла́, -ло́; -ляці́; -ле́цены; *зак., што.* **1.** Сшыць лісты, уставіўшы і замацаваўшы ў вокладку. *П. кнігу.* **2.** Злучаючы, сплесці; перавіць. *Дрэвы пераплялі свае галіны. П. касу стужкай.* **3.** Заплесці нанава. *П. касу.* ‖ *незак.* **пераплята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **пераплята́нне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **пераплёт**, -у, *М* -лёце, *м.* (да 1 знач.).

**ПЕРАПЛЕ́СЦІСЯ**, -лятýся, -ляце́шся, -ляце́цца; -ляцёмся, -лецяце́ся, -лятýцца; -лёўся, -ляла́ся, -ло́ся; -ляці́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і *сплесціся. Плюшч пераплёўся з хмелем.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Пераблытацца, змяшаўшыся. *Розныя думкі перапляліся ў галаве.* **3.** Заплесці сабе валасы ў косы нанава, іначай (разм.). **4.** З цяжкасцю перайсці (разм.). *Ледзь пераплёўся цераз мост.* ‖ *незак.* **пераплята́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПЕРАПЛЁТ**, -у, *М* -лёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* пераплесці. **2.** Цвёрдая вокладка, у якую, пераплятаючы, устаўляюць кнігу, сшытак і пад. *Скураны п.* **3.** Рама, рашотка, агароджа з перакрыжаваных перакладзін. *Аконны п.* **4.** *перан.* Складанае, цяжкае становішча. *Трапіць у п.* ‖ *прым.* **пераплётны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПЕРАПЛЁТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст, які займаецца пераплётам кніг. ‖ *ж.* **пераплётчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **пераплётчыцкі**, -ая, -ае.

**ПЕРАПЛЫ́СЦІ** *і* **ПЕРАПЛЫ́ЦЬ**, -ыву́, -ыве́ш, -ыве́; -ывём, -ывяце́, -ыву́ць; -ы́ў, -ыла́, -ло́; -ыві́; *зак., што* і *цераз што.* Пераадолець водную прастору ўплаў або плывучы на чым-н. *П. раку* або *цераз раку.* ‖ *незак.* **пераплыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАПЛЮ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -лю́нь; *зак.* **1.** *каго-што.* Плюнуць цераз што-н. **2.** *перан., каго (што).* Перасягнуць каго-н. у якіх-н. адносінах (разм.). *У гэтай справе Язэп кожнага пераплюне.*

**ПЕРАПЛЯЦЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Тое, што пераплецена, сплецена між сабой. *П. правадоў. П. лёсаў* (перан.). **2.** Спосаб сплятання нітак асновы і ўтку ў тканінах. *Палатнянае п.*

**ПЕРАПО́Й**, -ю, *м.* Стан пасля моцнага ап'янення (разм.). *Баліць галава ад перапою.*

**ПЕРАПО́ЙВАЦЬ** *гл.* перапаіць.

**ПЕРАПО́НА**, -ы, *мн.* -ы, -по́н, *ж.* Тое, што стрымлівае доступ куды-н. *П. для затрымання вады.*

**ПЕРАПО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Тонкая пругкая плёнка, якая з'яўляецца перагародкай, абалонкай у жывым арганізме. *Барабанная п. Плавальная п.* ‖ *прым.* **перапо́начны**, -ая, -ае.

**ПЕРАПО́НЧАТЫ**, -ая, -ае. З перапонкамі. *Перапончатыя лапы ў гусей.*

**ПЕРАПО́ЎНІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* Напоўніцца звыш меры. *Рака перапоўнілася вадой. Сэрца перапоўнілася радасцю* (перан.). ‖ *незак.* **перапаўня́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **перапаўне́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАПО́ЎНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што.* Напоўніць звыш меры. *П. засекі збожжам. П. чашу цярпення* (перан.). ‖ *незак.* **перапаўня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **перапаўне́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАПРАБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны *і* **ПЕРАПРО́БАВАЦЬ**, -бую, -буеш, -буе; -буй; -бованы; *зак., што.* Папрабаваць (папробаваць) усё, многае. *П. усе гатункі кавы.*

**ПЕРАПРА́ВА**, -ы, *ж.* **1.** *гл.* пераправіць[1]. **2.** *мн.* -ы, -ра́ў. Месца, дзе перапраўляюцца на другі бераг (на паромах, лодках і пад.). *Рачная п.*

**ПЕРАПРАВА́ННЕ** *гл.* перапрэць.

**ПЕРАПРАВА́ЦЬ** *гл.* перапрэць.

**ПЕРАПРА́ВІЦЬ**[1], -ра́ўлю, -ра́віш, -ра́віць; -ра́ўлены; *зак., каго-што.* **1.** Перавезці, перавесці цераз якую-н. прастору. *П. на другі бераг. П. цераз горы.* **2.** Адправіць з аднаго месца ў другое, па прызначэнні. *П. зброю партызанскаму атраду.* ‖ *незак.* **перапраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *звар.* **перапра́віцца**, -ра́ўлюся, -ра́вішся, -ра́віцца (да 1 знач.); *незак.* **перапраўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **перапра́ва**, -ы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **перапра́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.).

**ПЕРАПРА́ВІЦЬ**[2], -ра́ўлю, -ра́віш, -ра́віць; -ра́ўлены; *зак., што.* **1.** Унесці якія-н. змены, паправіць недахопы, памылкі ў чым-н. *П. лічбу «1» на «4».* **2.** Змяняючы, выпраўляючы недахопы, памылкі, паправіць усё, многае. *П. усе запісы.* ‖ *незак.* **перапраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **перапра́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЕРАПРАГА́ЦЬ** *гл.* перапрэгчы.

**ПЕРАПРАДА́ЦЬ**, -да́м, -дасі́, -да́сць; -дадзі́м, -дасце́, -даду́ць; -да́ў, -дала́, -ло́; -да́й; -да́дзены; *зак., каго-што.* Прадаць раней купленае (звычайна даражэй). *П. пярсцёнак.* ‖ *незак.* **перапрадава́ць**, -даю, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць. ‖ *наз.* **перапро́даж**, -у, *м.*

**ПЕРАПРАСІ́ЦЬ**, -прашу́, -про́сіш, -про́сіць; -про́шаны; *зак., каго* і *без дап.* Папрасіць каго-н. прабачыць за правінасць, непаслушэнства і пад. ‖ *незак.* **перапро́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перапро́шванне**, -я, *н.*

**ПЕРАПРАЦАВА́ЦЦА**, -цу́юся, -цу́ешся, -цу́ецца; -цу́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ператварыцца ў што-н. у выніку якіх-н. працэсаў, апрацоўкі. *Чыгун перапрацаваўся ў сталь.* **2.** Ператаміцца ў працэсе працы (разм.). ‖ *незак.* **перапрацо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАПРАЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак.* **1.** *што.* Ператварыць у што-н. у працэсе апрацоўкі. *П. зялёную масу на муку.* **2.** *што.* Перарабіць, зрабіць па-новаму, інакш. *П. рукапіс.* **3.** *без дап.* Папрацаваць даўжэй, чым было вызначана. *П. тры гадзіны.* ‖ *незак.* **перапрацо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перапрацо́ўванне**, -я, *н.* *і* **перапрацо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **перапрацо́вачны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**ПЕРАПРАША́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які выяўляе жаданне перапрасіць каго-н. за што-н. *П. тон.* ‖ *наз.* **перапраша́льнасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАПРО́БАВАЦЬ** *гл.* перапрабаваць.

**ПЕРАПРО́ДАЖ** *гл.* перапрадаць.

**ПЕРАПРЭ́ГЧЫ**, -рагу́, -ража́ш, -ража́; -ражо́м, -ражаце́, -рагу́ць; -ро́г, -рэ́гла *і* -рагла́, -рэ́гла *і* -рагло́; -ражы́; -рэ́жаны; *зак., каго (што).* Запрэгчы нанава або ў што-н. другое. *П. коней з плуга ў барану.* ‖ *незак.* **перапрага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАПРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Сапрэлы поўнасцю. *Перапрэлае лісце.* **2.** Сапсаваны ад прэння. *Перапрэлая скура.* ‖ *наз.* **перапрэ́ласць**, -і, *ж.*

**ПЕРАПРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *зак.* Сапрэць поўнасцю. *Угнаенне перапрэла.* ‖ *незак.* **пераправа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пераправа́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАПУ́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* (разм.). Моцны спалох. *Падскочыць з перапуду.*

**ПЕРАПУ́ДЗІЦЦА**, -у́джуся, -у́дзішся, -у́дзіцца; *зак.* (разм.). Перапужацца. *Коні перапудзіліся.*

**ПЕРАПУ́ДЗІЦЬ**, -у́джу, -у́дзіш, -у́дзіць; -у́джаны; *зак., каго* (разм.). Перапужаць. *Сабака перапудзіў авечак.*

**ПЕРАПУЖА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Моцна спужацца. *П. да смерці.*

**ПЕРАПУЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго (што).* Моцна спужаць.

**ПЕРАПЫ́НАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Часовае спыненне якой-н. дзейнасці, таксама перарыў у якім-н. працэсе. *Абедзенны п. П. у занятках.*

**ПЕРАПЫНІ́ЦЦА**, -ынюся, -ы́нішся, -ы́ніцца; *зак.* Прыпыніцца на кароткі час. *Размова перапынілася.* ‖ *незак.* **перапыня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПЕРАПЫНІ́ЦЬ**, -ыню́, -ы́ніш, -ы́ніць; -ы́нены; *зак.* **1.** *што.* Спыніць або прыпыніць якое-н. дзеянне. *П. сяўбу.* **2.** *каго-што.* Умяшаннем спыніць таго, хто гаворыць, робіць што-н. *П. дакладчыка пытаннем. П. на паўслове.* **3.** *каго-што.* Спыніць, затрымаць у час руху. *Прахожых*

*перапыніў патруль.* ‖ *незак.* **перапыня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПЕРАПЫТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., каго (што)* (разм.). Тое, што і *перапытаць* (у 1 знач.).

**ПЕРАПЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго (што)* і *без дап.* Спытаць яшчэ раз (звычайна не пачуўшы ці не зразумеўшы). **2.** *каго-што.* Апытаць усіх, многіх; спытаць пра ўсё, многае. *П. усіх знаёмых пра здарэнне. Яна пра ўсё перапытала ў мяне.* ‖ *незак.* **перапы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАПЭ́ЦКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Запэцкаць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. усё адзенне.* ‖ *незак.* **перапэ́цкваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **перапэ́цкацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **перапэ́цквацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАПЯЛІ́НЫ** *гл.* перапёлка.

**ПЕРАПЯЧЫ́**, -пяку́, -пячэ́ш, -пячэ́; -пячо́м, -печаце́, -пяку́ць; -пёк, -пякла́, -ло́; -пячы́; -пе́чаны; *зак., што.* **1.** Папячы больш, чым трэба, запячы вельмі моцна. *П. пірагі.* **2.** Спячы, папячы ўсё, многае. *Муку ўсю перапяклі.* ‖ *незак.* **перапяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 знач.).

**ПЕРАПЯЧЫ́СЯ**, -пяку́ся, -пячэ́шся, -пячэ́цца; -пячо́мся, -печаце́ся, -пяку́цца; -пёкся, -пякла́ся, -ло́ся; -пячы́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Папячыся больш, чым трэба, моцна запячыся. *Хлеб перапёкся.* **2.** *перан.* Прабыць вельмі доўга на сонцы (разм.). ‖ *незак.* **перапяка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПЕРАРАБІ́ЦЬ**, -раблю́, -ро́біш, -ро́біць; -ро́блены; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць нанава, іначай, іншым. *Перарабіць канцоўку п'есы. П. чый-н. характар.* **2.** *што на што, у што.* Зрабіць з чаго-н. аднаго нешта іншае. *Багацце на шчасце не пераробіш* (прыказка). **3.** Папрацаваць больш, чым трэба. *П. дзве гадзіны.* **4.** Працуючы вельмі многа,ператаміцца (разм.). **5.** *што.* Зрабіць усё, многае. *П. многа работы за дзень.* **6.** *што* і *чаго.* Зазнаць усякай працы, нарабіцца (разм.). *Чаго ён толькі не перарабіў за сваё жыццё.* ‖ *незак.* **перарабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **перaро́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *ж.* (да 1, 2 і 3 знач.).

**ПЕРАРАДЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* перарадзіцца. **2.** Страта былога светапогляду, сацыяльнага аблічча пад уздзеяннем чужога асяроддзя, ідэалогіі. *Маральнае п.*

**ПЕРАРАДЗІ́ЦЦА**, -раджу́ся, -ро́дзішся, -ро́дзіцца; *зак.* **1.** Рэзка змяніцца, абнавіцца, стаць зусім іншым. *П. духоўна.* **2.** Страціць свае папярэднія каштоўныя якасці, уласцівасці, вырадзіцца. *Пшаніца перарадзілася.* ‖ *незак.* **перараджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **перараджэ́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны; *зак., каго-што.* Зрабіць зусім іншым, абнавіць, пераўтварыць. ‖ *незак.* **перараджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАРАЗА́ЦЬ** *гл.* перарэзаць.

**ПЕРАРАЗЛІ́К**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Разлік, зроблены нанава. *Зрабіць п.*

**ПЕРАРАЗМЕРКАВА́ЦЬ**, -мяркую́, -мярку́еш, -мярку́е; -мярку́й; -меркава́ны; *зак., каго-што.* Размеркаваць нанава. *П. сыравіну паміж цэхамі.* ‖ *незак.* **пераразмярко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пераразмеркава́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАРАСХО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Расход звыш меры, нормы, плана. *П. крэдытаў.*

**ПЕРАРАСХО́ДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны; *зак.* і *незак., што.* Выдаткаваць (выдаткоўваць) звыш нормы, плана і пад. *П. фонд заработнай платы.*

**ПЕРАРАСЦІ́**, -сту́, -сцеш, -сце́; -сцём, -сцяце́, -сту́ць; -ро́с, -расла́, -ло́; -сці́; *зак.* **1.** *каго-што.* Стаць ростам вышэйшым за каго-, што-н. *Сын перарос бацьку.* **2.** *перан., каго (што).* Стаць вышэйшым за каго-н. у разумовых, маральных адносінах, ва ўменні. *П. свайго настаўніка.* **3.** *у што.* Развіўшыся, ператварыцца ў што-н. іншае. *Гоман перарос у крык.* **4.** Выйсці з узросту, устаноўленага для чаго-н. *Для дзіцячага сада хлапчук перарос.* ‖ *незак.* **перараста́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **перараста́нне**, -я, *н.* (да 2 і 3 знач.).

**ПЕРАРАШЫ́ЦЬ**, -рашу́, -рэ́шыш, -рэ́шыць; -рэ́шаны *і* -раша́ны; *зак., што.* Рашыць іншым спосабам. *П. задачу.* ‖ *незак.* **перарэ́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАРВА́ЦЬ**, -ву́, -ве́ш, -ве́; -вём, -вяце́, -ву́ць; -ві́; -ва́ны; *зак.* **1.** *што.* Разарваўшы, раздзяліць на часткі. *П. вяроўку.* **2.** *што.* Перапыніць на некаторы час якое-н. дзеянне, развіццё чаго-н.; парушыць які-н. стан, працэс. *П. перапіску з кім-н. П. маўчанне.* **3.** *каго.* Перабіць чыю-н. размову, гутарку. *П. прамоўцу.* **4.** *што.* Разарваць усё, многае. *П. усе ніткі.* ‖ *незак.* **перарыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—3 знач.).

**ПЕРАРЖАВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Пераедзены ржой. *Змяніць п. дрот.*

**ПЕРАРЖАВЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Ад іржы распасціся на часткі, пераламацца. *Дрот у многіх месцах перяржавеў.*

**ПЕРАРО́БКА** *гл.* перарабіць.

**ПЕРАРО́СЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вырас вышэй за іншых, вышэй за якую-н. норму. **2.** Старэйшы па гадах, чым устаноўлены для чаго-н. узрост. *П. вучань.* ‖ *наз.* **пераро́сласць**, -і, *ж.*

**ПЕРАРО́СТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Падлетак, старэйшы па ўзросце, чым патрэбна для чаго-н. *Для харэаграфіі ён ужо п.*

**ПЕРАРЫВА́ЦЬ**[1] *гл.* перарваць.

**ПЕРАРЫВА́ЦЬ**[2] *гл.* перарыць.

**ПЕРАРЫ́ВІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які перапыняецца цераз кароткія прамежкі часу; няроўны. *Перарывістае дыханне. П. голас.* **2.** З прамежкамі, не суцэльны. *Перарывістая лінія.* ‖ *наз.* **перары́вістасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАРЫСАВА́ЦЬ**, -сую, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., каго-што.* Рысуючы (часцей алоўкам), зрабіць копію чаго-н.; нарысаваць нанава. *П. узор.* ‖ *незак.* **перарысо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перарысо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* і **перарысо́ўванне**, -я, *н.*

**ПЕРАРЫ́Ў**, -ры́ву, *мн.* -ры́вы, -ры́ваў, *м.* **1.** Разрыў чаго-н. на часткі, а таксама месца разрыву. *П. провада.* **2.** Тое, што і *перапынак. Гаварыць з перарывамі. П. у стажы.*

**ПЕРАРЫ́ЦЬ**, -ры́ю, -ры́еш, -ры́е; -ры́ты; *зак., што.* **1.** Разрыць, парыць лычом усё, многае. *Свінні перарылі ўвесь агарод.* **2.** *перан.* У пошуках чаго-н. раскідаць, перакапаць усё. *П. усе рэчы ў каморцы.* ‖ *незак.* **перарыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАРЭГІСТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго-што.* Зарэгістраваць нанава. ‖ *звар.* **перарэгістрава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся. ‖ *наз.* **перарэгістра́цыя**, -і, *ж.*

**ПЕРАРЭ́ЗАЦЬ**, -рэ́жу, -рэ́жаш, -рэ́жа; -рэ́ж; -рэ́заны; *зак.* **1.** *каго-што.* Разрэзаўшы, раздзяліць надвое. *П. вяроўку.* **2.** *каго (што).* Зарэзаць усіх, многіх. *П. усіх качак.* **3.** *перан., што.* Перагарадзіць (шлях, дарогу). *П. шлях праціўніку.* ‖ *незак.* **перараза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 і 3 знач.) *і* **перарэ́зваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ПЕРАРЭ́ШВАЦЬ** *гл.* перарашыць.

**ПЕРАСА́ДЖВАЦЦА** *гл.* перасесці.

**ПЕРАСА́ДЖВАЦЬ** *гл.* перасадзіць.

**ПЕРАСАДЗІ́ЦЬ**, -саджу́, -са́дзіш, -са́дзіць; -са́джаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Прымусіць перасесці, пасадзіць на іншае месца, прапанаваць абмяняцца месцамі. *П. вучня на першую парту. П. пасажыраў з аднаго аўтобуса ў другі.* **2.** *што.* Выкапаўшы (расліну), пасадзіць у іншым месцы. *П. кветкі.* **3.** *што.* Зрэзаўшы, або выразаўшы (частку косці, тканкі, орган), перанесці для прыжывлення на іншым месцы або ў другім арганізме. *П. нырку.* **4.** *што.* Насадзіць, надзець на што-н. другое. *П. сякеру на другое тапарышча.* **5.** *каго (што).* Памагчы каму-н. пералезці цераз што-н. *П. дзіця цераз парог.* **6.** *каго-што.* Пасадзіць усё, многае або ўсіх, многіх. *За свой век ён многа дрэў перасадзіў. Акупанты перасадзілі ў турмы нямала людзей.* ‖ *незак.* **переса́джваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—5 знач.). ‖ *наз.* **перaса́джванне**, -я, *н.* (да 2 і 3 знач.) *і* **переса́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 1—4 знач.). *Зрабіць перасадку пасажыраў на другі самалёт. Перасадка дрэў. Перасадка скуры.* ‖ *прым.* **перaса́дачны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *П. матэрыял.*

**ПЕРАСА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* **1.** *гл.* перасадзіць. **2.** *мн.* -і, -дак. Пераход для прадаўжэння язды з аднаго транспартнага сродку на другі. *Ехаць з дзвюма перасадкамі.* ‖ *прым.* **перaса́дачны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПЕРАСАЛАДЗІ́ЦЬ**, -ладжу́, -ло́дзіш, -ло́дзіць; -ло́джаны; *зак., што.* Зрабіць вельмі салодкім. *П. чай.* ‖ *незак.* **перасало́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАСАЛІ́ЦЬ**, -салю́, -со́ліш, -со́ліць; -со́лены; *зак.* **1.** *што.* Пакласці вельмі многа солі ў што-н. *П. суп.* **2.** *перан.* Перайсці мяжу, меру дазволенага ў чым-н. (разм.). *П. у жартах.* ‖ *незак.* **перасо́льваць**,

-аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перасо́льванне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **перасо́л**, -у, *м.* (да 1 знач.). *Недасол на стале, а перасол на спіне* (прымаўка).

**ПЕРАСАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* **1.** Рассартаваць нанава, іначай. *П. яблыкі.* **2.** Рассартаваць усё, многае. *П. усё насенне.* ‖ *незак.* **перасарто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перасарто́ўванне**, -я, *н.*

**ПЕРАСВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -ва́рышся, -ва́рыцца; *зак.* Пасварыцца паміж сабою або з усімі, многімі. *Суседзі перасварыліся.*

**ПЕРАСВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -ва́рыш, -ва́рыць; -ва́раны; *зак., каго (што).* Пасварыць многіх, каго-н. з кім-н. *П. даўніх сяброў.*

**ПЕРАСЕ́ДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць *і* **ПЕРАСЯДЗЕ́ЦЬ**, -джу́, -дзі́ш, -дзі́ць; -сядзі́м, -седзяце́, -сядзя́ць; *зак.* **1.** Прасядзець дзе-н. больш, чым трэба. *Пераседзеў на тыдзень даўжэй у камандзіроўцы.* **2.** Сапсавацца ад доўгага сядзення (пра хлеб у печы). *Хлеб пераседзеў і адпёкся.* **3.** *каго (што).* Прасядзець даўжэй за каго-н. *Перасядзеў усіх у бібліятэцы.* **4.** *што.* Прабыць дзе-н. некаторы час. *П. дождж у хаце.* **5.** Адседзець да здранцвення. *П. нагу.* ‖ *незак.* **перасе́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАСЕ́КЧЫ** *гл.* перасячы.

**ПЕРАСЕ́СЦІ**, -ся́ду, -ся́дзеш, -ся́дзе; -се́ў, -се́ла; -ся́дзь; *зак.* **1.** Устаўшы з аднаго месца, сесці на другое. *П. на канапу.* **2.** Зрабіць перасадку (у 2 знач.). *П. на цеплаход.* **3.** Засесці (у горле і пад.). *Бульба перасела ў горле.* ‖ *незак.* **пераса́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 2 знач.) *і* **перасяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 3 знач.).

**ПЕРАСЕ́ЧАНЫ**, -ая, -ае. Няроўны, з узгоркамі і ярамі. *Перасечаная мясцовасць.* ‖ *наз.* **перасе́чанасць**, -і, *ж.*

**ПЕРАСІ́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* Празмерна напружваючы сілы, надарваць сябе. *Перасіліўся, падымаючы мех.* ‖ *незак.* **перасі́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАСІ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* **1.** *каго-што.* Перамагчы, пераадолець. *П. праціўніка і паваліць. Плыўцы перасілілі цячэнне.* **2.** *перан., каго-што.* Пераадолець якое-н. пачуццё, адчуванне, жаданне і пад. *П. страх. П. сябе.* **3.** *каго.* Змучыць, надарваць, прымушаючы празмерна напружвацца. *П. каня.* ‖ *незак.* **перасі́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАСКВА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* **1.** Доўга скварачы, зрабіць жорсткім, сухім, не такім, як трэба. *П. кілбасу.* **2.** Саскварыць усё, многае. *П. усё сала.* ‖ *незак.* **перасква́рваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПЕРАСКО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак.* **1.** *што і цераз што.* Зрабіўшы скачок, апынуцца на іншым баку ад чаго-н. *П. канаву. П. цераз плот.* **2.** Перамясціцца скачком (скачкамі) на іншае месца. *П. ад акна да дзвярэй.* **3.** *перан., на што.* Перайсці ад аднаго прадмета гутаркі да другога, не захоўваючы паслядоўнасці (разм.). *П. на іншую тэму.* ‖ *незак.* **пераска́кваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **пераско́кваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *аднакр.* **пераско́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (разм.).

**ПЕРАСЛА́ЦЬ**[1], -рашлю́, -рашле́ш, -рашле́; -рашлём, -рашляце́, -рашлю́ць; -расла́ў, -ла́ла; -рашлі́; -расла́ны; *зак., каго-што.* Паслаць, накіраваць у іншае месца. *П. кнігу па пошце.* ‖ *незак.* **перасыла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перасыла́нне**, -я, *н. і* **перасы́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* ‖ *прым.* **перасы́лачны**, -ая, -ае.

**ПЕРАСЛА́ЦЬ**[2], -сцялю́, -сце́леш, -сце́ле; -сла́ў, -ла́ла; -сцялі́; -сла́ны; *зак., што.* **1.** Паслаць нанава; зрабіць новы насціл. *П. пасцель. П. падлогу.* **2.** *чым.* Тое, што і перакласці (у 3 знач.). *П. рады яблыкаў саломай.* ‖ *незак.* **перасціла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перасці́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж. і* **перасціла́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАСМА́ЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* Ад доўгага смажання стаць цвёрдым, сухім, не такім, як трэба. *Рыба перасмажылася.* ‖ *незак.* **перасма́жвацца**, -аецца.

**ПЕРАСМА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* **1.** Доўга смажачы, зрабіць жорсткім, сухім, не такім як трэба. *П. мяса.* **2.** Сасмажыць усё, многае. *П. усю рыбу.* ‖ *незак.* **перасма́жваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПЕРАСМЕ́ЙВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Падаючы адзін другому якія-н. знакі, паціху смяяцца ў сувязі з чым-н. або з каго-н.

**ПЕРАСМЕ́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто любіць высмейваць, перадражніваць каго-н. ‖ *ж.* **перасме́шніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПЕРАСО́ВАЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прыстасаваны для зручнага перасоўвання, перамяшчэння. *П. столік.* **2.** Які дзейнічае, функцыянуе не на адным месцы, які перамяшчаецца. *Перасовачная выстаўка. Перасовачная майстэрня.*

**ПЕРАСО́Л** *гл.* перасаліць.

**ПЕРАСО́ЛЬВАННЕ** *гл.* перасаліць.

**ПЕРАСО́ЛЬВАЦЬ** *гл.* перасаліць.

**ПЕРАСО́РЦІЦА**, -ы, *ж.* (спец.). Перавод тавараў з аднаго сорту ў другі.

**ПЕРАСО́ЎВАННЕ** *гл.* перасунуць.

**ПЕРАСО́ЎВАЦЦА** *гл.* перасунуцца.

**ПЕРАСО́ЎВАЦЬ** *гл.* перасунуць.

**ПЕРАСО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.). **1.** *гл.* перасунуць. **2.** *мн.* -і, -со́вак. Перасовачная культурна-асветная ўстанова. *Бібліятэка-п.*

**ПЕРАСО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *перасовачны.*

**ПЕРАСО́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Празмерна сухі. *Перасохлае сена. Перасохлыя губы.* **2.** Які стаў бязводным. *Перасохлая рачулка.* ‖ *наз.* **перасо́хласць**, -і, *ж.*

**ПЕРАСО́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -со́х, -хла; *зак.* **1.** Стаць сушэйшым, чым трэба, або зусім сухім. *Сена перасохла. Губы перасохлі. У горле перасохла* (безас.). **2.** Стаць бязводным, зусім абмялець. *Калодзеж перасох.* ‖ *незак.* **перасыха́ць**, -а́е; *наз.* **перасыха́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАСПА́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́; *зак.* **1.** *што і без дап.* Прабыць які-н. час у стане сну; пераначаваць, правесці ноч дзе-н. *П. у суседзяў. Пераспім, а раніцай — у дарогу.* **2.** Праспаць больш, чым трэба (разм.). **3.** *каго.* Праспаць даўжэй за каго-н. *П. усіх.*

**ПЕРАСПЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Вельмі спелы. *Пераспелыя ягады. Пераспелая нявеста* (якая старэе; разм., іран.). ‖ *наз.* **пераспе́ласць**, -і, *ж.*

**ПЕРАСПЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаўшы вельмі спелым, пачаць псавацца. *Агрэст пераспеў.* **2.** *перан.* Выйсці з узросту, уласцівага якому-н. становішчу; пастарэць (разм., іран.). *Нявеста пераспела.* ‖ *незак.* **пераспява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАСПЯЛІ́ЦЬ**, -пялю́, -пе́ліш, -пе́ліць; -пе́лены; *зак., што.* Даць магчымасць стаць вельмі спелым. *П. памідоры.* ‖ *незак.* **пераспе́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАСТА́ВІЦЬ**, -та́ўлю, -та́віш, -та́віць; -та́ўлены; *зак.* **1.** *каго-што.* Паставіць на другое месца. *П. лямпу на другі стол. П. словы ў сказе.* **2.** *што.* Зрабіць нанава (хату, печ і пад.), перарабіць. ‖ *незак.* **перастаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **перастано́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЕРАСТА́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* (разм.). Той, хто выйшаў з якога-н. узросту, стаў старым для чаго-н. *Ён яшчэ не п.*

**ПЕРАСТАРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Паказаць празмерную старанасць у чым-н., залішне пастарацца.

**ПЕРАСТАЯ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які сапсаваўся, якасна змяніўся ад доўгага стаяння. *Перастаялая трава.*

**ПЕРАСТАЯ́ЦЬ**, -таю́, -таі́ш, -таі́ць; -таі́м, -таіце́, -тая́ць; -то́й; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прастаяць больш, чым трэба, сапсавацца, змяніцца якасна ад доўгага стаяння. *Жыта перастаяла.* **2.** *што.* Перачакаць што-н. стоячы. *П. дождж пад страхой.* ‖ *незак.* **перасто́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пераст́ой**, -ю, *м.* (спец.).

**ПЕРАСТРАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *каго (што).* Застрэліць усіх, многіх. *П. ваўкоў.* **2.** *што.* Расходаваць стральбою ўсё, многае. *П. патроны.* ‖ *незак.* **перастрэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАСТРАХАВА́ЦЦА**, -раху́юся, -раху́ешся, -раху́ецца; -раху́йся; *зак.* **1.** Застрахавацца зноў. **2.** *перан.* Засцерагчы сябе ад магчымай адказнасці за што-н. ‖ *незак.* **перастрахо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **перастрахо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **перастрахо́вачны**, -ая, -ае.

**ПЕРАСТРАХАВА́ЦЬ**, -раху́ю, -раху́еш, -раху́е; -раху́й; -рахава́ны; *зак., каго-што.* Застрахаваць зноў. *П. сваю маёмасць.* ‖ *незак.* **перастрахо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.*

**перастрахо́ўванне**, -я, *н. і* **перастрахо́ўка**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **перастрахо́вачны**, -ая, -ае.

**ПЕРАСТРАХО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (неадабр.). Чалавек, які перастрахоўваецца, агароджвае сябе ад магчымых непрыемнасцей. ‖ *ж.* **перастрахо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПЕРАСТРО́ІЦЦА**[1], -о́юся, -о́ішся, -о́іцца; *зак.* Пераключыцца на новую радыёхвалю. *Радыст хутка перастроіўся на новую хвалю.* ‖ *незак.* **перастро́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **перастро́йка**, -і, *ДМ* -ро́йцы, *ж.*

**ПЕРАСТРО́ІЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -о́іцца; *зак.* **1.** Размясціцца па-іншаму, змяніўшы свой строй (у 1 знач.). *Калона хутка перастроілася.* **2.** Змяніць сваё жыццё, працу і пад. *П. на новы лад* (перан.). ‖ *незак.* **перастро́йвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **перастрае́нне**, -я, *н. П. на маршы.*

**ПЕРАСТРО́ІЦЬ**[1], -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак.* Настроіць (у 1—3 знач.) інакш, нанава. *П. балалайку. П. радыёпрыёмнік.* ‖ *незак.* **перастро́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перастро́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.*

**ПЕРАСТРО́ІЦЬ**[2], -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., каго-што.* Нанава размясціць у страі, змяніць строй чаго-н. *П. баявыя парадкі пяхоты.* ‖ *незак.* **перастро́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перастрае́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАСТРЭ́ЛЬВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Абстрэльваць адзін аднаго. ‖ *наз.* **перастрэ́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.*

**ПЕРАСТРЭ́ЛЬВАЦЬ** *гл.* перастраляць.

**ПЕРАСТУ́КВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Абменьвацца ўмоўнымі стукамі цераз сцяну для паведамлення чаго-н. адзін другому. ‖ *наз.* **пераступ́к**, -у *м. і* **пераступ́кванне**, -я, *н.*

**ПЕРАСТУПА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* пераступіць[1]. **2.** Папераменна, мяняючы апору, паднімаць то адну, то другую нагу. *П. з нагі на нагу ад холаду.*

**ПЕРАСТУПА́ЦЬ**[2] *гл.* пераступіць[2].

**ПЕРАСТУПІ́ЦЬ**[1], -уплю́, -у́піш, -у́піць; *зак.* **1.** *каго-што* і *цераз каго-што.* Ступіўшы, перайсці што-н. *П. парог (цераз парог).* **2.** *перан., што.* Парушыць, перасягнуць мяжу чаго-н. *П. мяжу прыстойнасці. П. закон.* ‖ *незак.* **пераступа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАСТУПІ́ЦЬ**[2], -уплю́, -у́піш, -у́піць; *зак.* **1.** *што.* Добраахвотна адмовіцца ад чаго-н. на карысць другога; ахвяраваць што-н., чым-н. *П. чаргу. Я лепш сваё пераступлю.* **2.** *каму-чаму.* Зрабіць уступку, саступіць. *Старому чалавеку трэба п.* ‖ *незак.* **пераступа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАСУ́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Паўторны судовы разбор. *Адправіць справу на п.*

**ПЕРАСУ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* Пасунуўшыся, перамясціцца. *П. на другі канец лаўкі.* ‖ *незак.* **перасо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАСУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -су́нь; -нуты; *зак., каго-што.* Пасунуўшы, перамясціць. *П. канапу.* ‖ *незак.* **перасо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перасо́ўванне**, -я, *н. і* **перасо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.).

**ПЕРАСУШЫ́ЦЬ**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць вельмі сухім. *П. тытунь.* **2.** Высушыць усё, многае. *П. усю бялізну.* ‖ *незак.* **перасу́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАСЦЕРАГА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які перасцерагае, папярэджвае аб небяспецы. *П. надпіс.*

**ПЕРАСЦЕРАГЧЫ́**, -рагу́, -ражэ́ш, -ражэ́; -ражо́м, -ражаце́, -рагу́ць; -цяро́г, -церагла́, -ло́; -церажы́; -цярэ́жаны; *зак., каго (што).* Даць параду асцерагацца чаго-н., папярэдзіць. *П. аб небяспецы.* ‖ *незак.* **перасцерага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАСЦЕРАЖЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Тое, што і *перасцярога.*

**ПЕРАСЦІЛА́ННЕ** *і* **ПЕРАСЦІ́ЛКА** *гл.* пераслаць[2].

**ПЕРАСЦІЛА́ЦЬ** *гл.* пераслаць[2].

**ПЕРАСЦІ́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -ці́х, -хла; *зак.* **1.** Змоўкнуць, уціхнуць часова (пра гукі). **2.** Паступова аціхаючы, перастаць, сціхнуць. *Вецер перасціх.* ‖ *незак.* **перасціха́ць**, -а́е.

**ПЕРАСЦЯРО́ГА**, -і, *ДМ* -ро́зе, *мн.* -і, -ро́г, *ж.* Тое, што перасцерагае ад чаго-н. *Меры перасцярогі.*

**ПЕРАСЫЛА́ННЕ** *і* **ПЕРАСЫ́ЛКА** *гл.* пераслаць[1].

**ПЕРАСЫЛА́ЦЬ** *гл.* пераслаць[1].

**ПЕРАСЫ́ЛАЧНЫ** *гл.* пераслаць[1].

**ПЕРАСЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для перасылкі, адпраўкі каго-н. з аднаго месца ў другое. *П. пункт.*

**ПЕРАСЫ́ПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; -ы́п; -паны; *зак., што.* **1.** Насыпаць у другое месца. *П. збожжа ў мяшкі.* **2.** і *чаго.* Насыпаць звыш меры. *П. цукру ў чай.* **3.** *чым.* Насыпаць што-н. паміж чым-н. *П. адзенне нафталінам.* **4.** Разабраўшы, сабраць нанава, замяніўшы пашкоджаныя часткі. *П. хлеў.* **5.** *перан., чым.* Перапоўніць (мову) якімі-н. спецыфічнымі зваротамі, словамі і пад. *П. апавяданне дыялектызмамі.* ‖ *незак.* **перасыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **перасыпа́нне**, -я, *н.* (да 1, 3, 4 і 5 знач.) *і* **перасы́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (да 1, 3 і 4 знач.).

**ПЕРАСЫХА́ННЕ** *гл.* перасохнуць.

**ПЕРАСЫХА́ЦЬ** *гл.* перасохнуць.

**ПЕРАСЯГНУ́ЦЬ**, -ну́, -нэ́ш, -нэ́; -нём, -сегняце́, -ну́ць; -ні́; *зак., што.* Выйсці за якія-н. межы; аказацца большым за што-н. вызначанае. *Слава аб гераічным учынку перасягнула межы краіны. Ураджай бульбы перасягнуў 200 цэнтнераў з гектара.* ‖ *незак.* **перасяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАСЯДА́ЦЬ** *гл.* перасесці.

**ПЕРАСЯДЗЕ́ЦЬ** *гл.* пераседзець.

**ПЕРАСЯЛЕ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Чалавек, які перасяліўся ці перасяляецца на новае месца. ‖ *ж.* **перасяле́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ПЕРАСЯЛЕ́НЧЫ**, -ая, -ае (афіц.). Які мае адносіны да перасялення людзей на новыя месцы. *П. камітэт.*

**ПЕРАСЯЛІ́ЦЬ**, -сялю́, -се́ліш, -се́ліць; -се́лены; *зак., каго (што).* Пасяліць у другім месцы. *П. людзей у новы дом.* ‖ *незак.* **перасяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *звар.* **перасялі́цца**, -сялю́ся, -се́лішся, -се́ліцца; *незак.* **перасяля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **перасяле́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАСЯЧЫ́** *і* **ПЕРАСЕ́КЧЫ**, -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы́; -се́чаны; *што.* **1.** Рассячы папалам, на часткі. *П. жэрдку. Бізуном бервяна не перасячэш* (прыказка). **2.** Перайсці, пераехаць што-н. упоперак. *П. вуліцу. П. экватар.* **3.** Прайсці па паверхні чаго-н. ад аднаго канца да другога. *Чыгунка перасячэ нашу вобласць. Поле перасечана ярам.* **4.** *перан.* Перагарадзіць каму-, чаму-н. (дарогу, шлях і пад.). *Атрад перасек шлях непрыяцелю.* ‖ *незак.* **перасяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАСЯЧЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Месца, дзе перасякаецца што-н. *Пункт перасячэння прамых ліній.*

**ПЕРАТАМІ́ЦЦА**, -тамлю́ся, -то́мішся, -то́міцца; *зак.* Вельмі ўтаміцца. ‖ *незак.* **ператамля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **ператамле́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАТАМІ́ЦЬ**, -тамлю́, -то́міш, -то́міць; -то́млены; *зак., каго-што.* Вельмі ўтаміць. *П. каня.* ‖ *незак.* **ператамля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПЕРАТАПІ́ЦЬ**[1], -таплю́, -то́піш, -то́піць; -то́плены; *зак., што.* **1.** Апрацаваць тапленнем. *П. сала.* **2.** Празмерна адтапіць моцным награваннем (пра кіслае малако). ‖ *незак.* **перато́пліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **ператапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **перато́пліванне**, -я, *н. і* **перато́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (разм.).

**ПЕРАТАПІ́ЦЬ**[2], -таплю́, -то́піш, -то́піць; -то́плены; *зак., каго-што.* Утапіць усё, многае або ўсіх, многіх. *П. кацянят.*

**ПЕРАТАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* **1.** *што.* Тасуючы, перамяшаць або стасаваць яшчэ раз. *П. карты.* **2.** *перан., каго-што.* Перамяшаць, размясціць іначай (разм.). *П. паперы на стале.* ‖ *незак.* **ператасо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ператасо́ўванне**, -я, *н. і* **ператасо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЕРАТВАРА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *пераўтваральнік.* **2.** У некаторых складаных назвах — прыбор для ператварэння электрычнай энергіі. *П. току.*

**ПЕРАТВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -во́рышся, -во́рыцца; *зак.* **1.** Перайсці ў другі стан, набыць іншы выгляд, стаць чым-н. іншым. *Возера зарасло і ператварылася ў балота.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ажыццявіцца, набыць значэнне рэчаіснасці (высок.). *Планы ператварыліся ў рэальнасць.* **3.** *у каго-што.* У казках, паданнях і пад.: змяніць свой выгляд, пераўвярнуцца ў каго-, што-н. пры дапамозе чараў. ‖ *незак.*

**ператварáцца**, -áюся, -áешся, -áецца. ‖ *наз.* **ператварэ́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАТВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -вóрыш, -вóрыць; -вóраны; *зак.* **1.** *каго-што ў каго-што.* Перавесці ў другі стан, надаць іншы выгляд, змяніць якім-н. чынам. *П. ваду ў пару. П. справу ў забаўку.* **2.** *што ў што.* Ажыццявіць на справе, увасобіць у чым-н. пэўным, канкрэтным. *П. мары ў жыццё.* **3.** *каго-што ў каго-што.* У казках, паданнях і пад.: перавярнуцца ў каго-, што-н. пры дапамозе чараў. *Чараўніца ператварыла чалавека ў дрэва.* ‖ *незак.* **ператварáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **ператварэ́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАТÓПКА** *гл.* ператапіць[1].

**ПЕРАТÓПЛІВАННЕ** *гл.* ператапіць[1].

**ПЕРАТÓПЛІВАЦЬ** *гл.* ператапіць[1].

**ПЕРАТРАВІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áвіцца; *зак.* Засвоіцца ў працэсе стрававання. *Ежа ператравілася.* ‖ *незак.* **ператраўля́цца**, -я́ецца *і* **ператрáўлівацца**, -аецца.

**ПЕРАТРАВІ́ЦЬ**, -раўлю́, -рáвіш, -рáвіць; -рáўлены; *зак., што.* Засвоіць у працэсе стрававання. *П. ежу.* ‖ *незак.* **ператраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **ператрáўліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАТРЫВÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *зак., што.* Перажыць, перацярпець многае. *П. разруху.*

**ПЕРАТРЫВÓЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *зак.* Моцна ўстрывожыцца. *У вайну ўсе ў вёсцы ператрывожыліся.*

**ПЕРАТРЫВÓЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., каго.* Моцна ўстрывожыць. *Вы мяне ператрывожылі сваім паведамленнем.*

**ПЕРАТРЫМÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* **1.** Пратрымаць надта доўга. *П. хлеб у печы. П. негатывы ў праявіцелі.* **2.** Патрымаць неаднаразова ў сваіх руках што-н. або ўсё, многае. *Многа кніг ператрымаў у сваіх руках.* ‖ *незак.* **ператры́мліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ператры́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *ж.* (спец.). *П. пры фатаграфаванні.*

**ПЕРАТРЭ́СЦІ**, -расу́, -расéш, -расé; -расём, -расяцé, -расу́ць; -рóс, -рэ́сла; -расі́; -рэ́сены; *зак.* **1.** *што.* Трасучы, ачысціць ад чаго-н.; перабраць, пераглядзець, шукаючы чаго-н. *П. палавікі. П. ўсе рэчы. П. ў памяці мінулае* (перан.). **2.** *каго-што.* Зрабіць вобыск. *Паліцыя ператрэсла ўсіх жыхароў вёскі* (усю вёску). ‖ *незак.* **ператрасáць**, -áю, -áеш, -áе *і* **ператрэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАТУРБÁЦЫЯ**, -ыі, *мн.* -ыі, -цый, *ж.* (кніжн.). Нечаканая перамена ў ходзе чаго-н., якая выклікае беспарадак, замяшанне.

**ПЕРАЎВАСÓБІЦЦА**, -блюся, -бішся, -біцца; *зак.* Прыняць які-н. новы выгляд, вобраз, ператварыцца ў каго-, што-н. ‖ *незак.* **пераўвасабля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **пераўвасаблéнне**, -я, *н. Здольнасць артыста да пераўвасаблення.*

**ПЕРАЎВАСÓБІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., каго-што.* Увасобіць у новай форме, па-новаму. ‖ *незак.* **пераўвасабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **пераўвасаблéнне**, -я, *н.*

**ПЕРАЎЗБРÓІЦЬ**, -óю, -óіш, -óіць; -óены; *зак., каго-што.* Узброіць па-новаму, нанава. *П. армію.* ‖ *незак.* **пераўзбрóйваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **пераўзбрóіцца**, -óюся, -óішся, -óіцца; *незак.* **пераўзбрóйвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **пераўзбраéнне**, -я, *н.*

**ПЕРАЎТВАРÁЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто пераўтварае, пераўтварыў што-н. **2.** Прыстасаванне для пераўтварэння чаго-н. *Электрычны п. Вымяральны п. Ультрагукавы п.* ‖ *ж.* **пераўтварáльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 1 знач.).

**ПЕРАЎТВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -вóрыш, -вóрыць; -вóраны; *зак., што.* Змяніць карэнным чынам, перабудаваць. *П. прыроду.* ‖ *незак.* **пераўтварáць**, -áю, -áе. ‖ *наз.* **пераўтварэ́нне**, -я, *н.*

**ПЕРАФАРБАВÁЦЦА**, -бýюся, -бýешся, -бýецца; -бýйся; *зак.* **1.** Пафарбаваць свае валасы ў іншы колер. **2.** *перан.* Крывадушна прыкінуцца прыхільнікам каго-, чаго-н. (разм.). *П. ў добразычліўца.* ‖ *незак.* **перафарбóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАФАРБАВÁЦЬ**, -бýю, -бýеш, -бýе; -бýй; -бавáны; *зак., што.* **1.** Пафарбаваць нанава. *П. валасы.* **2.** Пафарбаваць усё, многае. *П. вокны і дзверы.* ‖ *незак.* **перафарбóўваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **перафарбóўванне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **перафарбóўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 знач.).

**ПЕРАФРАЗАВÁЦЬ**, -зýю, -зýеш, -зýе; -зýй; -завáны; *зак.* і *незак., што.* Змяніць (змяняць) форму падачы чыіх-н. слоў, выслоўяў, фраз і пад. ‖ *незак.* **перафразóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перафразóўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЕРАХАВÁЦЬ**[1], -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак.* **1.** *каго-што.* Схаваць у іншым месцы. *П. грошы.* **2.** *каго-што.* Хаваючы, зберагаючы, не даць загінуць. *П. бульбу ў склепе.* **3.** *што.* Схаваць, пахаваць усё, многае. ‖ *незак.* **перахóўваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПЕРАХАВÁЦЬ**[2], -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што.* **1.** Выкапаўшы з магілы, пахаваць у новым месцы. *П. прах.* **2.** Пахаваць усіх, многіх. *За год столькі перахавалі людзей.* ‖ *незак.* **перахóўваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПЕРАХАДЗІ́ЦЬ**, -хаджу́, -хóдзіш, -хóдзіць; -хóджаны; *зак.* **1.** *што.* Перабыць якую-н. пару, ходзячы ў чым-н. ці як-н. *П. зіму ў асеннім паліто.* **2.** *чым.* У гульнях: пайсці іначай, перамяніць ход. *П. пешкай.* **3.** *што.* Перанесці на нагах (хваробу; разм.). *П. грып.* **4.** *што* і *без дап.* Абысці ўсё або многа чаго-н. *Колькі я перахадзіў за год! Усе дарогі ў наваколлі перахадзіў.* ‖ *незак.* **перахóджваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 і 3 знач.).

**ПЕРАХАПІ́ЦЬ**, -аплю́, -óпіш, -óпіць; -óплены; *зак.* **1.** *каго-што.* Схапіць у час руху. *П. пісьмо. П. ганцоў. П. чый-н. позірк* (перан.). **2.** *каго-што.* Схапіць, абхапіць (рукамі, вяроўкай і пад.) у якім-н. месцы або інакш. *П. талію поясам.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Сціснуць спазмай. *Радасць перахапіла дыханне. Ад рэзкага пітва перахапіла* (безас.) *горла.* **4.** *перан., што, чаго* і *без дап.* Наспех з'есці чаго-н., перакусіць (разм.). *П. чаго-н. з яды.* **5.** *перан., што, чаго* і *без дап.* Пазычыць на кароткі час (разм.). *П. дзесяць рублёў.* **6.** *перан.* Перабраць меру ў чым-н. (разм., жарт.). *П. у вастраслоўі.* ‖ *незак.* **перахóпліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **перахапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПЕРАХАЦÉЦЦА**, -хóчацца; *безас.; зак., чаго* і *з інф.* (разм.). Тое, што і *расхацецца. Перахацелася есці.*

**ПЕРАХАЦÉЦЬ**, -хачу́, -хóчаш, -хóча; -хаці́; *зак., чаго* і *з інф.* (разм.). Тое, што і *расхацець. П. купацца.*

**ПЕРАХВАЛІ́ЦЬ**, -алю́, -áліш, -áліць; -áлены; *зак., каго-што.* Пахваліць больш, чым трэба, расхваліць. *П. поспехі вучня.*

**ПЕРАХВАЛЯВÁЦЦА**, -лю́юся, -лю́ешся, -лю́ецца; -лю́йся; *зак.* Перажыць вельмі моцнае хваляванне. *Перахвалявалася з-за хваробы сына.*

**ПЕРАХВАЛЯВÁЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; *зак., каго (што).* Выклікаць моцнае хваляванне ў кім-н. ці ўсхваляваць многіх. *П. усю сям'ю.*

**ПЕРАХВАРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* **1.** Перанесці многа хвароб. *У дзяцінстве перахварэў усімі хваробамі.* **2.** Перанесці якую-н. хваробу. *Дзеці перахварэлі на адзёр.* **3.** *перан.* Перажыўшы што-н. цяжкае, супакоіцца. *П. за сына.*

**ПЕРАХВÁТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто перахватвае, ідзе каму-н. наперарэз. *Самалёт-п.*

**ПЕРАХВАЦІ́ЦЬ**, -вачу́, -вáціш, -вáціць; -вáчаны; *зак.* Тое, што і *перахапіць.* ‖ *наз.* **перахвáт**, -у, *М* -вáце, *м.*

**ПЕРАХІТРАВÁЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -равáны; *зак., каго (што).* Тое, што і *перахітрыць.*

**ПЕРАХІТРЫ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыцé, -рáць; -хíтраны; *зак., каго (што).* Перамагчы хітрасцю, абхітрыць. *П. ворага.*

**ПЕРАХЛЯ́БІНА**, -ы, *мн.* -ы, -бін, *ж.* (разм.). **1.** Неглыбокая ўпадзіна, паглыбленне паміж двума ўзвышшамі. **2.** Выгін у спіне каня; седлавіна.

**ПЕРАХЛЯ́БІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). З перахлябінамі. *П. конь.*

**ПЕРАХÓД**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** *гл.* перайсці. **2.** *мн.* -ы, -аў. Месца, прыдатнае або прыстасаванае для пешай пераправы, а таксама для пешаходаў, што ідуць цераз вуліцу. *П. цераз ручай. Падземны п.* **3.** *мн.* -ы, -аў. Спецыяльнае збудаванне, калідор, галерэя, што злучае адно памяшканне з другім. *Ісці па цёмных пераходах.* **4.** Адлегласць паміж двума пунктамі, пройдзеная пешшу без прыпынкаў за які-н. час. *Удвух пераходах ад крэпасці.*

**ПЕРАХО́ДЖВАЦЬ** *гл.* перахадзіць.

**ПЕРАХО́ДЗІЦЬ** *гл.* перайсці.

**ПЕРАХО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прызначаны для пераходу куды-н. *П. тунэль. П. экзамен.* **2.** Прамежкавы, які з'яўляецца пераходам ад аднаго стану да другога. *П. перыяд. Пераходныя гаворкі.* **3.** Пра вытворчыя і спартыўныя ўзнагароды: які перадаецца новаму пераможцу ў спаборніцтве, барацьбе. *П. кубак. П. вымпел.* **4.** Які пералічваецца, пераносіцца на наступны год (спец.). *Пераходныя фонды. Пераходная тэма.* **5.** У граматыцы пра дзеяслоў, які патрабуе пасля сябе дапаўнення ў вінавальным склоне без прыназоўніка. ‖ *наз.* **перахо́днасць**, -і, *ж.* (да 2 і 5 знач.).

**ПЕРАХО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* перахапіць.

**ПЕРАХО́ЎВАЦЬ**[1] *гл.* перахаваць[1].

**ПЕРАХО́ЎВАЦЬ**[2] *гл.* перахаваць[2].

**ПЕРАХРЫСЦІ́ЦЦА** *гл.* хрысціцца.

**ПЕРАХРЫСЦІ́ЦЬ** *гл.* хрысціць.

**ПЕ́РАЦ**, -рцу, *м.* **1.** Трапічная расліна сямейства перцавых, а таксама яе плады (зерне) з горкім пякучым смакам і моцным пахам, якія ўжываюцца як прыправа. *У горы жыць ды з перцам есці* (прымаўка). *Чорны п.* **2.** Агародная расліна сямейства паслёнавых з пладамі ў выглядзе струкоў. *Фаршыраваны п.* ◊ **Даць (задаць) перцу** *каму* (разм.) — вылаяць, пакараць. ‖ *прым.* **пе́рцавы**, -ая, -ае *і* **пярцо́вы**, -ая, -ае. *Перцавы струк. Сямейства перцавых* (наз.). *Пярцовая настойка.*

**ПЕРАЦАНІ́ЦЬ**, -цаню́, -цэ́ніш, -цэ́ніць; -цэ́нены; *зак.* Тое, што і *перааацаніць.* ‖ *незак.* **перацэ́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПЕРАЦЕ́РЦІ**, перат́ру́, ператрэ́ш, ператрэ́; ператро́м, ператраце́, ператру́ць; -цёр, -це́рла; ператры́; -цёрты; *зак., што.* **1.** Трэннем раздзяліць на часткі. *Кола перацерла вяроўку.* **2.** Тручы, ператварыць у іншы від, стан. *П. тытунь на парашок.* **3.** Выцерці ўсё, многае. *П. пасуду.* ‖ *незак.* **перацірáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПЕРАЦЕ́РЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., ператрэ́цца; -цёрся, -це́рлася; *зак.* **1.** Ад трэння раздзяліцца. *Вяроўка перацерлася.* **2.** Здрабніцца, ператварыцца ў парашок. *Увесь тытунь перацёрся.* ‖ *незак.* **перацірáцца**, -áецца.

**ПЕРАЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., каго-што.* **1.** Моцна сціснуць, здушыць, туга перавязаць, сцягнуць чым-н. *П. аорту.* **2.** Ціскам раздзяліць на часткі, расплюшчыць у якім-н. месцы. *П. змяю колам.* ‖ *незак.* **перацiскáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПЕРАЦІ́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -ці́х, -хла; *зак.* Тое, што і *перасціхнуць.* ‖ *незак.* **перацiхáць**, -áе.

**ПЕРАЦЯГА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што.* Перамясціць волакам, перанасіць ці ўкрасці за некалькі прыёмаў. *П. бярвенне. Ваўкі перацягалі многа авечак.*

**ПЕРАЦЯГНУ́ЦЦА**, -ягну́ся, -я́гнешся, -я́гнецца; -ягні́ся; *зак.* Туга сцягнуць сябе чым-н. *П. поясам.* ‖ *незак.* **перацяґвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПЕРАЦЯГНУ́ЦЬ**, -ягну́, -я́гнеш, -я́гне; -ягні́; -я́гнуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Цягнучы, перамясціць. *П. канапу ў другі пакой.* **2.** *перан., каго (што).* Пераманіць, прымусіць перайсці ці пераехаць куды-н. (разм.). *П. на свой бок. П. сябра да сябе на працу.* **3.** *што.* Нацягнуць нанава. *П. шыны на колах.* **4.** *каго-што.* Туга сцягнуць. *П. талію поясам.* **5.** *каго-што.* Аказацца па вазе цяжэйшым за што-н. *Адна шаля перацягнула другую.* **6.** *каго (што).* Пра спаборніцтва, у якім праціўнікі цягнуць што-н. у розныя бакі: аказацца мацнейшым за каго-н. *Хто каго перацягне?* **7.** *што.* Перарабіць, перашыць (скураны абутак; спец.). *П. боты.* ‖ *незак.* **перацяґваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перацяґванне**, -я, *н.* (да 1, 3—6 знач.) *і* **пераця́жка**, -і, *ДМ* -жцы (да 3, 4 і 7 знач.).

**ПЕРАЦЯРПЕ́ЦЬ**, -цярплю́, -це́рпіш, -це́рпіць; -цярпі́; *зак.* **1.** *што.* Перанесці; выцерпець многае; церпячы, пераадолець што-н. *П. усе нягоды. П. спакусу.* **2.** *чаго* і *без дап.* Зазнаць шмат пакут, гора і пад. *Колькі ён перацярпеў за свой век!*

**ПЕРАЧАКА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *зак., каго-што* і *без дап.* Прабыць дзе-н., у якіх-н. умовах і пад., чакаючы заканчэння чаго-н. або пакуль хто-н. закончыць што-н. *П. дождж. Усіх не перачакаеш. П. паўгадзіны.*

**ПЕРАЧАПА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што* (разм.). Дакрануцца па чарзе да многага, многіх. *П. усё на стале.*

**ПЕРАЧАРЦІ́ЦЬ**, -чарчу́, -чэ́рціш, -чэ́рціць; -чэ́рчаны; *зак., што.* **1.** Начарціць нанава. *П. план будынка.* **2.** Зняць копію з якога-н. чарцяжа. *П. план на кальку.* ‖ *незак.* **перачэ́рчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перачэ́рчванне**, -я, *н.*

**ПЕРАЧАСА́ЦЬ**[1], -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чашы́; -часа́ны *і* -чэ́саны; *зак.* **1.** *што.* Расчасаць для прыгатавання пражы ўсё, многае. *П. увесь лён.* **2.** *што.* Расчасаць пачэсанае яшчэ раз. *П. кудзелю.* **3.** *каго-што.* Прычасаць нанава. *П. валасы.* ‖ *незак.* **перачэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 і 3 знач.).

**ПЕРАЧАСА́ЦЬ**[2], -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чашы́; -часа́ны *і* -чэ́саны; *зак., што.* **1.** Абчасаць, пачасаць усё, многае. *П. усё бярвенне.* **2.** Абчасаць нанава. *П. бервяно.* ‖ *незак.* **перачэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.).

**ПЕ́РАЧНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Пасудзіна для молатага перцу.

**ПЕРАЧУ́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; *зак., што.* **1.** Даведацца з чужых размоў, пачуць пра многае. *Многае перачула ад людзей.* **2.** Адчуць, зведаць усё, многае. *Давялося многае пераэжыць, п.*

**ПЕРАЧЫТА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што.* **1.** Прачытаць нанава. *П. Кузьму Чорнага.* **2.** Прачытаць многа чаго-н. *П. усе газеты.* ‖ *незак.* **перачы́тваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПЕРАШАЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). **1.** Ашалець — пра ўсіх, многіх. *Што вы ўсе перашалелі тут?* **2.** Пасля буйнага, разгульнага жыцця супакоіцца, стаць разважлівым. *З цягам часу хлопец перашалее, адумаецца.*

**ПЕРАШКО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ко́д, *ж.* **1.** Тое, што затрымлівае якія-н. дзеянні або развіццё чаго-н., стаіць на шляху ажыццяўлення чаго-н. *Пераадольваць перашкоды. Бюракратычныя перашкоды.* **2.** Тое, што перагароджвае шлях, затрымлівае перамяшчэнне. *Паласа перашкод* (мясцовасць са штучнымі канавамі, загародамі і пад.; спец.). *Бег з перашкодамі.*

**ПЕРАШКО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* З'явіцца перашкодай для каго-, чаго-н., не даць магчымасці здзейсніць што-н. *Вайна перашкодзіла скончыць інстытут. Яму перашкодзілі працаваць.* ‖ *незак.* **перашкаджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПЕРАШРУБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* **1.** Зашрубаваць нанава. **2.** Шрубуючы, сапсаваць нарэзку. ‖ *незак.* **перашрубо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **перашрубо́ўванне**, -я, *н.*

**ПЕРАШЫ́ЕК**, -ы́йка, *мн.* -ы́йкі, -ы́йкаў, *м.* Паласа сушы, якая злучае два мацерыкі ці знаходзіцца паміж двума воднымі масівамі. *Суэцкі п.* ‖ *прым.* **перашы́ечны**, -ая, -ае.

**ПЕРАШЫ́ЦЬ**, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак., што.* Перарабіць (пашытае), пашыць па-іншаму. *П. сукенку.* ‖ *незак.* **перашыва́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **перашыва́нне**, -я, *н. і* **перашы́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **перашы́вачны**, -ая, -ае. *Перашывачная майстэрня.*

**ПЕРАШЭ́ПТВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Перагаворвацца шэптам. *П. на сходзе. Дрэвы перашэптваюцца* (перан.).

**ПЕРАЭКЗАМЕНО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -но́вак, *ж.* Паўторны экзамен (пасля нездавальняючага адказу на першым). *П. па матэматыцы.*

**ПЕРАЯДА́ННЕ** *гл.* пераесці.

**ПЕРАЯДА́ЦЬ** *гл.* пераесці.

**ПЕРАЯЗДЖА́ЦЬ** *гл.* пераехаць.

**ПЕРВА́НШ**, *нязм.* Шаравата-блакітны. *Крэпдэшын колеру п.*

**ПЕРГА́МЕНТ**, -у, *М* -нце, *м.* **1.** Пісчы матэрыял з цялячай скуры, якім карысталіся да вынаходства паперы, а таксама рукапіс на такім матэрыяле. **2.** Папера, якая не прапускае тлушчу і вільгаці. ‖ *прым.* **перга́ментны**, -ая, -ае. *П. скрутак.*

**ПЕ́Р'Е**, -я, *н., зб.* Пёры (*гл.* пяро ў 1 знач.). *Гусінае п.*

**ПЕРЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *жэмчуг* (уст.). **2.** *перан., чаго.* Пра што-н. выдатнае, цудоўнае (высок., іран.). *Перлы паэзіі. Перлы дасціпнасці.* **3.** Пра што-н. бязглуздае, недарэчнае і пад. (разм., іран.). *Не выступленне, а адны перлы.*

**ПЕРЛАМУ́ТР**, -у, *м.* Каштоўнае рэчыва з пералівістай афарбоўкай, якое складае цвёрды ўнутраны слой некаторых ракавін. ‖ *прым.* **перламу́травы**, -ая, -ае. *П. гузік.*

**ПЕРЛЮСТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак. і незак., што* (спец.). Праглядзець (праглядаць) паштовыя адпраўленні з мэтай нагляду, цэнзуры. *П. пісьмы.* ‖ *наз.* **перлюстра́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **перлюстрацы́йны**, -ая, -ае.

**ПЕРМАНЕ́НТ**, -у, *М* -нце, *м.* Завіўка, якая доўга трымаецца. *Зрабіць п.*

**ПЕРМАНЕ́НТНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Бесперапынны, пастаянны. *Перманентнае развіццё.* ‖ *наз.* **пермане́нтнасць**, -і, *ж.*

**ПЕРМЯКІ́**, -о́ў, *адз.* пярмя́к, пермяка́, *м.* Былая назва часткі народа комі. ‖ *ж.* **пярмя́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **пярмя́цкі**, -ая, -ае.

**ПЕ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Салодкае печыва на мёдзе, патацы або цукры з духмянымі прыправамі. *Мядовы п.* ‖ *прым.* **пе́рнікавы**, -ая, -ае.

**ПЕРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пасажырская платформа на вакзале. ‖ *прым.* **перо́нны**, -ая, -ае.

**ПЕРПЕНДЫКУЛЯ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У матэматыцы: прамая лінія, якая складае прамы вугал з другой прамой лініяй або плоскасцю. *Апусціць п.*

**ПЕРПЕНДЫКУЛЯ́РНЫ**, -ая, -ае. Які з'яўляецца перпендыкулярам. *Перпендыкулярныя плоскасці. Размясціць перпендыкулярна* (прысл.) *да чаго-н.* ‖ *наз.* **перпендыкуля́рнасць**, -і, *ж.*

**ПЕРПЕ́ТУУМ-МО́БІЛЕ**, *нескл., м.* (кніжн.). Вечны рухавік. *Вынаходнікі перпетуум-мобіле.*

**ПЕРСАНА́Ж**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дзеючая асоба ў мастацкім творы. *Эпізадычны п. Персанажы Кандрата Крапівы.*

**ПЕРСАНА́Л**, -у, *м.* Асабовы склад работнікаў установы, прадпрыемства, аб'яднаных па прафесійных і іншых адзнаках. *П. лабараторыі. Медыцынскі п. Абслуговы п.*

**ПЕРСАНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які датычыцца толькі пэўнай асобы ці выкарыстоўваецца ёю. *Персанальнае запрашэнне. Персанальная справа. Звярнуцца да каго-н. персанальна* (прысл.). *П. камп'ютар.*

**ПЕ́РСІ**, -яў (уст.). Тое, што і *грудзі* (у 1 і 2 знач.).

**ПЕ́РСІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Паўднёвы сакаўны мясісты плод з пушыстай жаўтавата-чырвонай скуркай, а таксама дрэва, на якім ён расце. ‖ *прым.* **пе́рсікавы**, -ая, -ае. *П. колер* (жаўтавата-чырвоны).

**ПЕРСО́НА**, -ы, *мн.* -ы, -со́н, *ж.* (кніжн.). Асоба, чалавек. *Прыехала вельмі важная п. Накрыць стол на сем персон.*

**ПЕРСПЕКТЫ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -ты́ў, *ж.* **1.** Мастацтва адлюстроўваць на плоскасці трохмерную прастору з улікам уяўных змяненняў велічыні, абрысаў, выразнасці прадметаў, што абумоўлены ступенню аддаленасці іх ад наглядальніка. *Законы перспектывы.* **2.** Від у далячынь з якога-н. месца; даль. *Марская п.* **3.** *перан.*, звычайна *мн.* Будучыня, планы, віды на будучае. *Добрыя перспектывы на ўраджай. У перспектыве* (у будучым, наперадзе). ‖ *прым.* **перспекты́ўны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**ПЕРСПЕКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* перспектыва. **2.** Які прадугледжвае будучае развіццё. *Перспектыўнае планаванне.* **3.** Такі, які мае добрыя перспектывы (у 3 знач.), можа паспяхова развівацца ў будучым. *Перспектыўная прафесія. П. работнік* (які расце прафесійна; разм.). ‖ *наз.* **перспекты́ўнасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**ПЕ́РСЦЕНЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Пярсцёнак звычайна з каштоўным каменем. ‖ *прым.* **пе́рсценевы**, -ая, -ае.

**ПЕ́РСЫ**, -аў, *адз.* перс, -а, *м.* Ранейшая назва іранцаў; цяпер — назва нацыі фарсаў, якая складае каля паловы насельніцтва Ірана. ‖ *ж.* **персія́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **персі́дскі**, -ая, -ае. *Персідская мова.*

**ПЕРУНО́ВЫ** *гл.* пярун.

**ПЕРФАКА́РТА**, -ы, *ДМ* -рце, *мн.* -ы, -ка́рт, *ж.* (спец.). Перфарацыйная карта: картка стандартнай формы з прабітымі на ёй у пэўным парадку адтулінамі, якія нясуць закадзіраваную інфармацыю.

**ПЕРФАРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Апарат для запісу інфармацыі на перфастужках і перфакартах. *Электрамагнітны п.* **2.** Машына для бурэння горных парод. ‖ *прым.* **перфара́тарны**, -ая, -ае *і* **перфарацы́йны**, -ая, -ае.

**ПЕРФАРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Прабіванне адтулін перфаратарам, а таксама самі гэтыя адтуліны. ‖ *прым.* **перфарацы́йны**, -ая, -ае. *Перфарацыйная карта.*

**ПЕРФАСТУ́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* Скарачэнне: перфарацыйная стужка — вузкая стужка з прабітымі на ёй у вызначаным парадку адтулінамі, якія нясуць закадзіраваную інфармацыю.

**ПЕ́РХАЦЬ**[1], -і, *ж., зб.* Дробныя лусачкі рагавых клетак скуры, якія ўтвараюцца на галаве каля каранёў валасоў.

**ПЕ́РХАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм). Сутаргава пакашлізаць ад перасыхання, раздражнення ў горле.

**ПЕ́РЦАВЫ** *гл.* перац.

**ПЕ́РЦІ**, пру, прэш, прэ; пром, праце́, пруць; пёр, пе́рла; пры; *незак.* (разм.). **1.** Ісці, рухацца. *Прэ пасярэдзіне дарогі.* **2.** Ісці, рухацца куды-н., не лічачыся з перашкодамі, з забаронай. *Куды прэш напралом!* **3.** *каго-што.* Гнаць, выганяць. *П. чужога сабаку з двара.* **4.** *каго-што.* Валачы (што-н. цяжкае, груваскае). *П. мяшок бульбы.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). З сілай выходзіць вон, праяўляцца. *Карані пруць з зямлі. Злосць з яго так і прэ.* **6.** *што.* Прагна есці. *Прэ як не ў сябе.*

**ПЕ́РЦІСЯ**, пру́ся, прэ́шся, прэ́цца; про́мся, праце́ся, пру́цца; пёрся, пе́рлася; пры́ся; *незак.* (разм.). Тое, што і *перці* (у 1 і 2 знач.). *Куды прэшся без чаргі!*

**ПЕ́РЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *незак., што.* Пасыпаць перцам. *П. булён.* ‖ *зак.* **напе́рчыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны *і* **папе́рчыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны.

**ПЕРШ**, *прысл.* Спачатку, раней. *П. накармлю жывёлу, а потым пайду ў агарод.* ◊ **Перш за ўсё** — у першую чаргу. *Перш за ўсё скажы нам, калі ты ад'язджаеш?* **Перш-наперш** — спачатку, перш за ўсё. *Перш-наперш неабходна зрабіць тэрміновую работу.*

**ПЕРША...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які адносіцца да чаго-н. першага па ліку, напр.: *першакласнік, першамайскі;* 2) самы ранні, які дзейнічае раней за іншых, напр.: *першадрукар, першапраходца;* 3) самы лепшы ў якіх-н. адносінах, напр.: *першакласны, першагатункова.*

**ПЕРШААДКРЫВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто першым адкрыў што-н. (землі, краіны, мясцовасці і пад.). *Першаадкрывальнікі калійнай солі ў Беларусі.* ‖ *ж.* **першаадкрыва́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПЕРШААСНО́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -но́ў, *ж.* (кніжн.). Асноўны пачатак. *Факты — п. ведаў.* ‖ *прым.* **першаасно́ўны**, -ая, -ае.

**ПЕРШАБЫТНААБШЧЫ́ННЫ**, -ая, -ае. У выразе: **першабытнаабшчынны лад** — першая ў гісторыі чалавецтва грамадска-эканамічная дакласавая фармацыя, якая характарызавалася агульнай уласнасцю на сродкі вытворчасці, калектыўнай працай і спажываннем.

**ПЕРШАБЫ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да найстаражытнейшага перыяду гісторыі чалавецтва. *П. чалавек.* **2.** *перан.* Які захоўвае першапачатковы стан. *Першабытная прырода* (некранутая). **3.** *перан.* Дзікі, некультурны, адсталы. *Першабытныя норавы.* ‖ *наз.* **першабы́тнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**ПЕРШАВО́БРАЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Першапачатковы, зыходны вобраз, выгляд чаго-н. ‖ *прым.* **першаво́бразны**, -ая, -ае.

**ПЕРШАГАТУНКО́ВЫ**, -ая, -ае. Які належыць да першага гатунку, лепшы. *Першагатунковая мука.* ‖ *наз.* **першагатунко́васць**, -і, *ж.*

**ПЕРШАГО́ДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* (разм.). **1.** Салдат ці матрос першага года службы. **2.** Маладая жывёліна на першым годзе жыцця.

**ПЕРШАДРУ́К**, -у, *м.* Першая або адна з першых друкаваных кніг.

**ПЕРШАДРУКАВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адносіцца да першых, пачатковых гадоў кнігадрукавання. *Першадрукаваныя кнігі.* **2.** Які з'яўляецца першым друкаваным выданнем. *П. тэкст рамана.*

**ПЕРШАДРУКА́Р** -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Чалавек, які паклаў пачатак кнігадрукаванню. *Беларускі п. Францыск Скарына.*

**ПЕРШАКЛА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань першага класа. ‖ *ж.* **першакла́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПЕРШАКЛА́СНЫ**, -ая, -ае. Лепшы па якасцях, кваліфікацыі; узорны. *П. спецыяліст. Першакласная тэхніка.* ‖ *наз.* **першакла́снасць**, -і, *ж.*

**ПЕРШАКРЫНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Першая асноўная крыніца якіх-н. звестак. *Летапісы — дакументальныя першакрыніцы гісторыі.*

**ПЕРШАКУ́РСНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Студэнт, навучэнец першага курса. ‖ *ж.* **першаку́рсніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПЕРШАМА́Й**, -я, *м.* (з вялікай літары). Першае мая — дзень працы. ‖ *прым.* **першама́йскі**, -ая, -ае. *П. парад.*

**ПЕРШАПАЧАТКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Самы першы, які папярэднічае ўсяму астатняму. *П. план падарожжа.* **2.** Які з'яўляецца пачаткам, першай ступенню чаго-н. *П. перыяд хваробы. Першапачатковае накапленне капіталу.* ‖ *наз.* **першапачатко́васць**, -і, *ж.*

**ПЕРШАПРЫЧЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -чы́н, *ж.* (кніжн.). Асноўная, зыходная прычына чаго-н.

**ПЕРШАРА́ДНЫ**, -ая, -ае. Асноўны, найважнейшы. *Першарадныя задачы навукі.* ‖ *наз.* **першара́днасць**, -і, *ж.*

**ПЕРШАРАЗРА́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спартсмен першага разраду. ‖ *ж.* **першаразра́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПЕРШАРАЗРА́ДНЫ**, -ая, -ае. Які належыць да першага разраду, лепшы, першакласны. *Першаразраднае атэлье.*

**ПЕРШАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які нарадзіўся першым, самы першы (уст.). *П. сын.* **2.** *перан.* Які захоўвае свой натуральны стан, некрануты, першапачатковы (кніжн.). *Першародная прыгажосць.*

**ПЕ́РШАСНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які з'яўляецца першай, зыходнай ступенню чаго-н., першапачатковы. *Першасная абмотка трансфарматара. Першаснае значэнне слова.* ‖ *наз.* **пе́ршаснасць**, -і, *ж.*

**ПЕРШАСО́РТНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *першагатунко́вы.* ‖ *наз.* **першасо́ртнасць**, -і, *ж.*

**ПЕРШАСТУПЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Найважнейшы, першарадны. *Факт першаступеннага значэння.* ‖ *наз.* **першаступе́ннасць**, -і, *ж.*

**ПЕРШАЦВЕ́Т**, -у, *М* -ве́це, *м.* Тое, што і *прымула.* ‖ *прым.* **першацве́тны**, -ая, -ае. *Сямейства першацветных* (наз.).

**ПЕРШАЦЁЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Карова, якая целіцца або ацялілася першы раз.

**ПЕРШАЧАРГО́ВЫ**, -ая, -ае. Які выконваецца ў першую чаргу, неадкладна. *Першачарговая задача.* ‖ *наз.* **першачарго́васць**, -і, *ж.*

**ПЕРШАЧО́К** *гл.* пяршак.

**ПЕРШАЭЛЕМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Асноўны, галоўны элемент, састаўная вызначальная частка чаго-н. *Першаэлементам літаратуры з'яўляецца мова.*

**ПЕ́РШЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* адзін. **2.** Першапачатковы, самы ранні, які з'явіўся крыніцай або аб'ектам дзеяння раней за іншых. *Першае ўражанне. Не першага веку* (не малады). *Прадукт не першай свежасці* (пачынае псавацца). *П. рэйс.* **3.** Самы лепшы з усіх у якіх-н. адносінах, выдатны, добры. *П. майстар. П. гатунак.* **4.** *у знач. наз.* **пе́ршае**, -ага, *н.* Рэдкая страва (суп, боршч і пад.), што падаецца ў пачатку абеду. *З'есці першае.*

**ПЕ́РШЫНЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* **1.** Першае, старэйшае дзіця. **2.** *перан., чаго* або *які.* Тое, што з'явілася, створана першым па часе (высок.). *Наваполацкі нафтаперапрацоўчы завод — п. Беларусі.*

**ПЕРШЫНСТВАВА́ЦЬ**, -тву́ю, -тву́еш, -тву́е; -тву́й; *незак.* Быць першым у чым-н., валодаць першынством. *П. у спартыўных гульнях.*

**ПЕРШЫНСТВО́**, -а́, *н.* **1.** Першае месца ў дачыненні да якіх-н. дасягненняў, заслуг, вартасцей. *Барацьба за п.* **2.** Спаборніцтва за першае месца. *П. свету па шахматах.*

**ПЕРШЫНЯ́**, -і́, *ж.* (разм.). Першы раз (звычайна з адмоўем «не»). *Гэта яму не п.*

**ПЕРШЭРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Коньламавік буйной і вынослівай пароды. ‖ *прым.* **першэро́нскі**, -ая, -ае. *Першэронская парода.*

**ПЕРЫГЕ́Й**, -я, *м.* (спец.). Найбліжэйшы да Зямлі пункт арбіты Месяца ці штучнага спадарожніка Зямлі; *проціл.* апагей. ‖ *прым.* **перыге́йны**, -ая, -ае.

**ПЕРЫЁДЫКА**, -і, *ДМ* -дыцы, *ж., зб.* Перыядычныя выданні (газеты, часопісы). *Навуковая п.*

**ПЕРЫ́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У матэматыцы: сума даўжынь усіх старон плоскай геаметрычнай фігуры. *П. трохвугольніка.* ‖ *прым.* **перыметры́чны**, -ая, -ае.

**ПЕРЫПЕТЫ́Я**, -і, *мн.* -і, -ты́й, *ж.* (кніжн.). Вельмі складаны ход падзей (першапачаткова ў драме або рамане), а таксама рэзкія, нечаканыя перамены, павароты ў чыім-н. жыцці. *Перыпетыі лёсу.*

**ПЕРЫСКО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аптычная прылада для назірання за чым-н. з укрыцця, падводнай лодкі, танка і пад. ‖ *прым.* **перыско́пны**, -ая, -ае *і* **перыскапі́чны**, -ая, -ае.

**ПЕРЫСТА́ЛЬТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* (спец.). Хвалепадобнае сціскванне сценак полых органаў (кішак, страўніка і інш.). ‖ *прым.* **перыстальты́чны**, -ая, -ае.

**ПЕ́РЫСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Пакрыты пер'ем (спец.). *Перыстыя крылы.* **2.** Падобны формай да пер'я. *Перыстыя воблакі.*

**ПЕРЫТАНІ́Т**, -у, *М* -ні́це, *м.* (спец.). Запаленне брушыны.

**ПЕРЫФЕРЫ́Я**, -і, *ж.* **1.** Аддаленая ад цэнтра мясцовасць, а таксама мясцовыя ўстановы, арганізацыі ў адрозненне ад цэнтральных. *Працаваць на перыферыі.* **2.** Частка чаго-н., аддаленая ад цэнтра (спец.). *П. сятчаткі вока.* ‖ *прым.* **перыфе-ры́йны**, -ая, -ае *і* **перыферы́чны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПЕРЫФРА́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м. і* **ПЕРЫФРА́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́з, *ж.* (кніжн.). Выраз, які з'яўляецца апісальнай перадачай сэнсу другога выразу ці слова, напр.: «цар звяроў» замест «леў». ‖ *прым.* **перыфрасты́чны**, -ая, -ае. *П. выраз.*

**ПЕРЫФРАЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак., каго-што* (кніжн.). Выкласці перыфразамі. ‖ *незак.* **перыфразо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **перыфразо́ўванне**, -я, *н.*

**ПЕ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* **1.** З сілай ударацЬ, біць па чым-н. ці ў што-н. *П. нагой у дзверы. П. кіем па спіне.* **2.** *што.* Выбіваць што-н. пранікам. *Жанчыны перылі бялізну.*

**ПЕРЫ́ЯД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адрэзак часу, у які што-н. адбываецца (пачынаецца, развіваецца і заканчваецца). *Пасляваенны п. П. росквіту. Інкубацыйны п. хваробы.* **2.** У матэматыцы: 1) **перыяд функцыі** — лік, пры дадаванні якога да аргумента некаторай функцыі значэнне функцыі не змяняецца; 2) **перыяд дробу** — група лічбаў, якія нязменна паўтараюцца ў адной і той жа паслядоўнасці ў бясконцых дзесятковых дробах. **3.** Адносна закончаны фрагмент тэксту, часткі якога звязаны паміж сабой сінтаксічна, лексічна і інтанацыйна (спец.). ‖ *прым.* **перыяды́чны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.). *П. дроб. Перыядычная сістэма элементаў.*

**ПЕРЫЯДЫЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Падзел на перыяды (у 1 знач.). *П. гісторыі літаратуры.*

**ПЕРЫЯДЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* перыяд. **2.** Які паўтараецца час ад часу, адбываецца праз пэўныя прамежкі часу. *Перыядычныя з'явы. Паўтарацца перыядычна* (прысл.). **3.** Які выходзіць (з друку) праз пэўныя прамежкі часу. *П. друк* (газеты, часопісы). *Перыядычныя выданні.* ‖ *наз.* **перыяды́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**ПЕ́СА**, *нескл., н.* Грашовая адзінка шэрагу краін Лацінскай Амерыкі і інш.

**П'Е́СА**, -ы, *мн.* -ы, п'ес, *ж.* **1.** Драматычны твор, прызначаны для пастаноўкі на тэатральнай сцэне. **2.** Невялікі музычны інструментальны твор (спец.). *П. для баяна.*

**ПЕ́СЕННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, **1.** Зборнік песень. **2.** Выканаўца песень. **3.** Аўтар тэксту песень або кампазітар песеннай музыкі. *Паэт-п.* ‖ *ж.* **пе́сенніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 2 знач.).

**ПЕ́СЕННЫ** *гл.* песня.

**ПЕСЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -се́це, *мн.* -ы, -се́т, *ж.* Грашовая адзінка ў Іспаніі да 2002 года.

**ПЕСІМІ́ЗМ**, -у, *м.* Светаадчуванне, прасякнутае нявер'ем у будучае, схільнасцю бачыць ва ўсім толькі адмоўнае; *проціл.* аптымізм. ‖ *прым.* **песімісты́чны**, -ая, -ае.

**ПЕСІМІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек песімістычнага складу; *проціл.* аптыміст. *П. па натуры.* ‖ *ж.* **песімі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПЕСІМІСТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* песімізм. **2.** Прасякнуты песімізмам. *П. настрой.* ‖ *наз.* **песімісты́чнасць**, -і, *ж.*

**ПЕСКАЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае (спец.). Пра расліны: якія добра расце на пясчанай глебе. ‖ *наз.* **пескалюбі́васць**, -і, *ж.*

**ПЕСКАСТРУМЕ́ННЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае адносіны да апрацоўкі пры дапамозе пяску, які б'е пад моцным напорам паветранага струменя. *П. апарат. Пескаструменная апрацоўка.*

**ПЕ́СНЯ**, -і, *мн.* -і, -сень, *ж.* **1.** Вершаваны і музычны твор для выканання голасам. *Харавая п. Жніўныя песні. Беларускія народныя песні.* **2.** Пра спевы птушак. *Салаўіныя песні.* ◊ **Доўгая песня** (разм.) — тое, што патрабуе працяглага часу, што не скора можа быць зроблена, расказана і пад. **Старая песня** (разм.) — што-н. даўно вядомае. **Песня спета** *чыя* (разм.) — канец чыйго-н. жыцця, шчасця, поспехаў і пад. ‖ *памянш.* **пе́сенька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* ‖ *прым.* **пе́сенны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *П. матыў.*

**ПЕ́СЦІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Жаночы орган кветкі, з якога ўтвараецца плод пасля апладнення пыльцой.

**ПЕ́СЦІЦЦА**, пе́шчуся, пе́сцішся, пе́сціцца; *незак.* Аддавацца пяшчотам, цешыцца бестурботнасцю. *П. ў цяньку.*

**ПЕ́СЦІЦЬ**, пе́шчу, пе́сціш, пе́сціць; пе́шчаны; *незак.* **1.** *каго.* Любоўна дагледзець, пялегаваць; патураць усім жаданням, балаваць. *П. дзяцей.* **2.** *каго.* Лашчыць, галубіць. *П. дзіця.* **3.** *перан., каго-што.* Выклікаць прыемныя адчуванні (пра вецер, сонца і пад.). *Вецер песціць твар.* **4.** *перан., што.* Жадаць здзяйснення чаго-н. прыемнага. *П. надзею.* ‖ *зак.* **вы́песціць**, -пешчу, -песціш, -песціць; -пешчаны (да 1 знач.) *і* **спе́сціць**, спе́шчу, спе́сціш, спе́сціць; спе́шчаны (да 1 знач.).

**ПЕТА́РДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Старадаўні разрыўны снарад у выглядзе металічнай пасудзіны, напоўненай порахам. **2.** Сігнальны разрыўны снарад, што кладзецца на рэйкі, каб спыніць цягнік у выпадку небяспекі. **3.** У піратэхніцы: снарад з парахавым зарадам, які выкарыстоўваецца для феерверку. ‖ *прым.* **пета́рдавы**, -ая, -ае *і* **пета́рдны**, -ая, -ае.

**ПЕТРАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Раздзел геалогіі, які вывучае горныя пароды, іх састаў і структуру. ‖ *прым.* **петраграфі́чны**, -ая, -ае.

**ПЕТЫ́Т**, -у, *М* -ты́це, *м.* Дробны друкарскі шрыфт з вышынёй літар каля 3 мм (кегль роўны 8 пунктам). ‖ *прым.* **петы́тны**, -ая, -ае.

**ПЕТЫ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Калектыўная пісьмовая просьба, накіраваная да ўлад. ‖ *прым.* **петыцы́йны**, -ая, -ае.

**ПЕ́ЎНЕВЫ** *гл.* певень.

**ПЕ́ЎНІК** *гл.* певень.

**ПЕ́ЎЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Надзелены прыродай здольнасцямі спяваць або меладычна свістаць. *Пеўчая капэла. Пеўчыя птушкі.* **2.** **пе́ўчы**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Спявак хору, звычайна царкоўнага. *Хор пеўчых.*

**ПЕХАТО́Й** *і* **ПЕХАТО́Ю**, *прысл.* Рухацца сваімі нагамі, пяшком. *Ісці п.*

**ПЕХАЦІ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Ваеннаслужачы пяхоты. ‖ *прым.* **пехаці́нскі**, -ая, -ае.

**ПЕЦЬ**, пяю́, пяе́ш, пяе́; пяём, пеяце́, пяю́ць; пей; пе́ты; *незак.* **1.** *што* і *без дап.* Утвараць голасам музычныя гукі, выконваць вакальны твор. *П. раманс.* **2.** Пра пеўчых і некаторых іншых птушак: абзывацца галасамі. *Жаваранак пяе.* **3.** *што* і *пра што.* Складаць вершы пра што-н., апяваць што-н. (высок.). *Паэт пяе пра жыццё народа.* ◊ **Лазара пець** (разм., неадабр.) — скардзіцца на лёс, прыкідвацца няшчасным. ‖ *зак.* **прапе́ць**, -пяю́, -пяе́ш, -пяе́; -пяём, -пеяце́, -пяю́ць; -пе́й; -пе́ты (да 1 і 2 знач.) *і* **спець**, спяю́, спяе́ш, спяе́; спяём, спеяце́, спяю́ць; спей; спе́ты (да 1 і 2 знач.).

**ПЕЧ**, -ы, *Т* пе́ччу, *мн.* -ы, пячэ́й *і* пе́чаў, *ж.* **1.** Цаглянае, каменнае або металічнае збудаванне, дзе разводзяць агонь, каб нагрэць памяшканне, згатаваць ежу. *Кафляная п. Паліць у печы.* **2.** Спецыяльнае збудаванне для апрацоўкі чаго-н. награваннем. *Сушыльная п. Доменная п.* ◊ **Ад печы** (разм.) — пачынаць рабіць што-н. з самага простага, з самага пачатку. **Ні да печы ні да рэчы** (разм.) — неўпапад, не да месца. ‖ *прым.* **пячны́**, -а́я, -о́е. *Пячная засланка. Пячное ацяпленне.*

**ПЕЧАНЕ́ГІ**, -аў, *адз.* -не́г, -а, *м.* Цюркскія і сарматкія плямёны, якія вандравалі ў 9—11 стст. па паўднёвым усходзе Еўропы. ‖ *прым.* **печане́жскі**, -ая, -ае.

**ПЕ́ЧАНЫ**, -ая, -ае. Прыгатаваны пячэннем. *Печаныя яблыкі.* ◊ **Гад печаны** (лаянк.) — вылюдак, кат.

**ПЕ́ЧАНЬ**, -і, *ж.* Стрававальная залоза ў жывёл і чалавека, якая выпрацоўвае жоўць, удзельнічае ў працэсах стрававання, кровазвароту і абмену рэчываў. ‖ *прым.* **пячо́начны**, -ая, -ае. *Пячоначныя пратокі.*

**ПЕ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Невялікая або часовая печ, якая служыць для абагравання памяшкання. *Чыгунная п.*

**ПЕЧКУРЫ́НЫ** *гл.* пячкур.

**ПЕ́ЧЫВА**, -а, *н., зб.* Печаныя вырабы з мукі. *Выняць п. з духоўкі.*

**ПЕШАХО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які ідзе пяшком.

**ПЕШАХО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прызначаны для хадзьбы пяшком. *П. мосцік.* **2.** Тое, што і *пешы. П. рух.*

**ПЕ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Найменш каштоўная па значэнні фігура ў шахматнай гульні. **2.** *перан.* Пра малазначнага і несамастойнага ў сваіх дзеяннях чалавека. ‖ *памянш.* **пе́шачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, чак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **пе́шачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПЕ́ШНЯ**, -і, *мн.* -і, -шань, *ж.* Лом з драўляным дзяржаннем для прабівання лёду.

**ПЕ́ШЫ**, -ая, -ае. Які ідзе пехатой ці праводзіцца, ажыццяўляецца пехатой. *П. чалавек. П.* (наз.) *коннаму не таварыш* (прыказка). *П. паход.*

**ПЁРАВЫ** *гл.* пяро[2].

**ПЁРКА**[1] *гл.* пяро[1].

**ПЁРКА**[2] *гл.* пяро[2].

**ПІ́ВА**, -а, *н.* Слабаалкагольны пеністы напітак з ячменнага соладу і хмелю. *Піва не зварыш з кім-н.* (перан.: цяжка дагаварыцца; разм.). ‖ *памянш.* **піўцо́**, -а́, *н.* (разм.). ‖ *прым.* **піўны́**, -а́я, -о́е. *Піўная бочка.*

**ПІВАВА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па піваварэнні.

**ПІВАВА́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* (уст.). Тое, што і *бровар.*

**ПІВАВАРЭ́ННЕ**, я, *н.* Прамысловы выраб піва. ‖ *прым.* **півава́рны**, -ая, -ае. *П. завод.*

**ПІВО́НЯ**, -і, *мн.* -і, -нь, *ж.* Дэкаратыўная травяністая расліна сямейства лютікавых з вялікімі чырвонымі, ружовымі ці белымі кветкамі. ‖ *прым.* **піво́невы**, -ая, -ае.

**ПІ́ГАЛІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ліц, *ж.* (разм.). Пра маленькага, шчуплага чалавека, пераважна жанчыну.

**ПІГМЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Чалавек, які належыць да аднаго з нізкарослых плямён Афрыкі або Азіі, а таксама (перан.) увогуле пра чалавека малога росту. **2.** *перан.* Пра нікчэмнага, абмежаванага чалавека.

**ПІГМЕ́НТ**, -у, *М* -нце, *м.* (спец.). **1.** Рэчыва ў арганізме чалавека, жывёл і раслін, якое надае афарбоўку скуры, валасам, кветкам і лісцю. **2.** Хімічны парашковы фарбавальнік. ‖ *прым.* **пігме́нтны**, -ая, -ае *і* **пігме́нтавы**, -ая, -ае.

**ПІГМЕНТАВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ту́е; -тава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Афарбаваць (афарбоўваць) тканкі арганізма пігментам.

**ПІГМЕНТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Афарбоўка тканак жывых арганізмаў, абумоўленая наяўнасцю пігменту. *П. вока.*

**ПІЕТЭ́Т**, -у, *М* -тэ́це, *м.* (кніжн.). Глыбокая павага, пачцівыя адносіны да каго-, чаго-н. *Да яго ўсе адносіліся з піетэтам.*

**ПІЖА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -жа́м, *ж.* Хатні або спальны касцюм, які складаецца з курткі і штаноў вольнага крою. *Лёгкая п.* ‖ *прым.* **піжа́мны**, -ая, -ае.

**ПІЖО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Фарсісты малады чалавек, заняты сваёй знешнасцю; франт. ‖ *ж.* **піжо́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **піжо́нскі**, -ая, -ае.

**ПІЖО́НІСТЫ**, -ая, -ае (разм., неадабр.). Падобны да піжона, які паводзіць сябе, як піжон *П. малады чалавек.*

**ПІЖО́НСТВА**, -а, *н.* (разм., пагард.). Паводзіны піжона.

**ПІК**, -а *і* -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Спічастая вяршыня гары. **2.** -у, *перан.* Найвышэйшы ўздым у развіцці чаго-н., у якой-н. дзейнасці. *П. у рабоце.* **3.** *нязм.* Які адносіцца да кароткачасовага рэзкага ўздыму. *Гадзіны п. у рабоце транспарту.*

**ПІ́КА**[1], -і, *ДМ* піцы, *мн.* -і, пік, *ж.* Колючая зброя, від кап'я. *Пранізаць пікай.*

**ПІ́КА**[2] *гл.* пікі.

**ПІ́КАВЫ**, -ая, -ае (разм.). Непрыемны, складаны. *Пікавае становішча.*

**ПІКАДО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Коннік з пікай, які ўдзельнічае ў баі быкоў.

**ПІКА́НТНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Цікавы сваёй сенсацыйнасцю, які выклікае цікаўнасць. *Пікантнае здарэнне. Пікантная навіна.* **2.** Вельмі прывабны, спакуслівы. *П. выгляд.* ‖ *наз.* **піка́нтнасць**, -і, *ж.*

**ПІКА́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі аўтамабіль для перавозкі грузаў і пасажыраў, з адкіднымі сядзеннямі каля бартоў.

**ПІКЕ́**[1], *нескл., н.* Тканіна палатнянага перапляцення з рубчыкам уздоўж асновы. *Блузка з п.* ‖ *прым.* **пікейны**, -ая, -ае.

**ПІКЕ́**[2], *нескл., н.* (спец.). Тое, што і пікіраванне. *Самалёт выйшаў з п.*

**ПІКЕ́Т**, -а, *М* -ке́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Невялікі вартаўнічы атрад, пост. *Пост-п. ДАІ.* **2.** Група асоб, якая стаіць дзе-н. з мэтай дэманстрацыі грамадскага пратэсту, выражэння якіх-н. патрабаванняў. *П. забастоўшчыкаў. Пікеты каля будынка парламента.* ‖ *прым.* **пікетны**, -ая, -ае.

**ПІКЕТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што.* Выстаўляць пікеты (у 2 знач.). *П. міністэрскі будынак.*

**ПІКЕ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Удзельнік пікета (у 2 знач.). ‖ *ж.* **піке́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПІ́КІ**, -аў, *адз.* пі́ка, -і, *ж.* Картачная масць з малюнкам у выглядзе чорнага наканечніка пікі. ‖ *прым.* **піко́вы**, -ая, -ае. *Піковая дама.*

**ПІКІ́РАВАЦЦА**, -руюся, -руешся, -руецца; -руйся; *незак., з кім* (кніжн.). Абменьвацца з'едлівымі, колкімі заўвагамі. ‖ *наз.* **пікіро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **пікі́раванне**, -я, *н.*

**ПІКІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* Зніжацца на вялікай хуткасці і амаль вертыкальна (пра самалёт). *Самалёт пікіруе на цэль.* ‖ *зак.* **спікі́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй. ‖ *наз.* **пікі́раванне**, -я, *н.*

**ПІКІРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Пікіруючы бамбардзіроўшчык.

**ПІКНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Загарадная прагулка кампаніяй з закускай на свежым паветры. ‖ *прым.* **пікніко́вы**, -ая, -ае.

**ПІ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** Выдаць кароткі гук, піск. *Жаласна п.* **2.** Зрабіць спробу сказаць што-н., запярэчыць чаму-н. *Не смець п.! Толькі пікні* (пагроза).

**ПІКО́ВЫ** *гл.* пікі.

**ПІКТАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Старажытная форма пісьма — перадача паведамлення малюнкамі. ‖ *прым.* **піктаграфі́чны**, -ая, -ае.

**ПІ́КУЛІ**, -яў. Прыправа да некаторых страў, прыгатаваная з дробна нарэзанай марынаванай гародніны.

**ПІ́КША**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Паўночная марская рыба сямейства трасковых.

**ПІЛА́**, -ы́, *мн.* пі́лы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) пілы́, піл, *ж.* **1.** Стальная зубчастая пласціна (або дыск) для разразання дрэва, металу і пад. *Ручная п.* (інструмент у выглядзе тавой пласціны з ручкай). *Механічная п.* (машына для пілавання). *Цыркулярная п.* **2.** *перан.* Пра чалавека, які пілуе (у 2 знач.) каго-н. (разм., неадабр.).

**ПІЛАВА́НЫ**, -ая, -ае. Прыгатаваны шляхам пілавання. *П. цукар* (у квадратных грудках).

**ПІЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак.* **1.** *што* і *без дап.* Рэзаць пілой, а таксама знімаць слой металу напільнікам. *П. лес.* **2.** *перан., каго (што).* Дапякаць бесперапыннымі папрокамі, прыдзіркамі (разм.). *П. дамашніх.* ‖ *наз.* **пілава́нне**, -я, *н. і* **піло́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПІЛАВІ́ННЕ**, -я, *н., зб.* Адходы пры пілаванні, апілкі. *Драўлянае, металічнае п.*

**ПІЛАМАТЭРЫЯ́ЛЫ**, -аў. Матэрыялы з дрэва, атрыманыя шляхам падоўжнага распілоўвання бярвення. *Будаўнічыя п.*

**ПІЛА́-РЫБА**, пілы́-ры́бы, *мн.* пі́лы-ры́бы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) пілы́-ры́бы, піл-ры́б, *ж.* Драпежная рыба з атрада скатаў з адросткамі на мордзе, падобнымі на зуб'е пілы.

**ПІЛАСТА́Ў**, -та́ва, *мн.* -та́вы, -та́ваў, *м.* Рабочы, які ўстанаўлівае пілы на лесапільных рамах.

**ПІЛАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што.* Кіраваць лятальным апаратам. *П. самалёт.* ‖ *наз.* **пілатава́нне**, -я, *н.*

**ПІЛАТА́Ж**, -у, *м.* Майстэрства манеўравання лятальным апаратам пры выкананні авіяцыйных фігур. *Фігуры вышэйшага пілатажу.* ‖ *прым.* **пілата́жны**, -ая, -ае.

**ПІЛІГРЫ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). **1.** Паломнік, вандроўны багамолец. **2.** Вандроўнік, падарожны. ‖ *ж.* **пілігры́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак. ‖ *прым.* **пілігры́мскі**, -ая, -ае.

**ПІЛІ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Утвараць тонкія пісклівыя гукі (пераважна аб смычковых музычных інструментах). *На дварэ пілікала скрыпка. Пад бервяном пілікаў цвыркун.* **2.** Кепска іграць на чым-н. *П. на скрыпцы.* ‖ *аднакр.* **пілі́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **пілі́канне**, -я, *н.*

**ПІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Маленькая ручная піла. **2.** Напільнік для ногцяў.

**ПІЛО́Т**, -а, *М* -ло́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лётчык, які кіруе лятальным апаратам. ‖ *прым.* **піло́цкі**, -ая, -ае.

**ПІЛО́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Летні ваенны форменны галаўны ўбор без палёў, які першапачаткова насілі толькі пілоты; наогул шапачка такой формы. ‖ *прым.* **піло́тачны**, -ая, -ае.

**ПІЛЬНАВА́ЦЦА**, -ну́юся, -ну́ешся, -ну́ецца; -ну́йся; *незак.* **1.** *чаго.* Знаходзіцца паблізу чаго-н., не адыходзіцца. *П. хаты.* **2.** *каго.* Хадзіць следам за кім-н., трымацца каго-н. *П. бацькі.* **3.** *чаго.* Удзяляць увагу чаму-н. *П. гаспадаркі.* **4.** *чаго.* Прытрымлівацца чаго-н., кіравацца чым-н. *П. правіл, дысцыпліны.* **5.** Асцерагацца, быць уважлівым. *Пераходзячы дарогу, трэба п.*

**ПІЛЬНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; *незак., каго-што.* **1.** Вартаваць, сцерагчы. *П. сад.* **2.** Падсцерагаць, сачыць. *П. каго-н. на вуліцы.*

**ПІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які патрабуе неадкладнага выканання, неабходны, тэрміновы. *Пільная работа. Пільная патрэба.* **2.** Старанны, руплівы. *П. ў рабоце чалавек.* **3.** Уважлівы, неаслабны. *Пільная праверка. Пільна* (прысл.) *сачыць.* ‖ *наз.* **пі́льнасць**, -і, *ж.*

**ПІ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Рабочы, які займаецца пілоўкай, распілоўваннем. **2.** Насякомае атрада перапончатакрылых. ‖ *ж.* **пі́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц (да 1 знач.). ‖ *прым.* **пі́льшчыцкі**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **пі́льшчыкавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПІЛЮ́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, -лю́ль, *ж.* Лякарства, спрасаванае ў форме галачкі, шарыка. *Прыняць пілюлю ад кашлю. Паднесці пілюлю* (таксама перан.: зрабіць што-н. непрыемнае; разм.). *Праглынуць пілюлю* (таксама перан.: моўчкі сцярпець справядлівы папрок, непрыемную для сябе праўду).

**ПІЛЯ́СТРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж. і* **ПІЛЯ́СТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прамавугольны выступ на сцяне ў выглядзе ўробленай у яе калоны. ‖ *прым.* **піля́стравы**, -ая, -ае.

**ПІНГВІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Антарктычная птушка з кароткімі, падобнымі да крылаў ластамі, якая плавае, але не лятае. ‖ *прым.* **пінгві́навы**, -ая, -ае.

**ПІНГ-ПО́НГ**, -а, *м.* Настольны тэніс. ‖ *прым.* **пінг-по́нгавы**, -ая, -ае.

**ПІНЕ́ТКІ**, -так, *адз.* -тка, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Чаравічкі на мяккай падэшве для самых маленькіх дзяцей. ‖ *прым.* **піне́тачны**, -ая, -ае.

**ПІНЖА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Частка мужчынскага касцюма ў выглядзе курткі з адкладным каўняром, якая спераду зашпільваецца на гузікі. *Аднабортны п.* ‖ *памянш.* **пінжачо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* ‖ *прым.* **пінжа́чны**, -ая, -ае.

**ПІ́НТА**, -ы, *ДМ* -нце, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Адзінка вымярэння вадкасцей і сыпкіх рэчываў у Англіі і ЗША і некаторых іншых краінах, роўная 0,56 л.

**ПІНЦЭ́Т**, -а, *М* -цэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Медыцынскі або тэхнічны інструмент у выглядзе спружынных шчыпчыкаў. ‖ *прым.* **пінцэ́тны**, -ая, -ае.

**ПІ́НЧАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Парода службовых і паляўнічых сабак, якіх выкарыстоўваюць для лоўлі ласак, шашкоў, пацукоў і мышэй.

**ПІПЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Шкляная трубачка з гумавым каўпачком, пры дапамозе якой набіраюць вадкасць і выпускаюць па каплях. *П. для закапвання вачэй.* ‖ *прым.* **піпе́тачны**, -ая, -ае.

**ПІ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* (разм.). Люлька для курэння. *Дзед не выпускаў з зубоў сваю пікпу.*

**ПІРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да высокіх тэмператур, да дзеяння высокіх тэмператур, напр.: *пірадынаміка, піразапальнік, піраметалургія, пірапісталет, піратэрапія, піраэлектрычнасць.*

**ПІРАЖКО́ВАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Закусачная, у якой гандлююць піражкамі.

**ПІРАЖКО́ВЫ** *гл.* пірог.

**ПІРАЖО́К** *гл.* пірог.

**ПІРАМІ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -мі́д, *ж.* **1.** Мнагаграннік, асновай якога з'яўляецца многавугольнік, а астатнія грані — трохвугольнікі з агульнай вяршыняй. **2.** Вялікае каменнае збудаванне такой формы — грабніца фараонаў у Старажытным Егіпце. **3.** Група складзеных прадметаў, якая мае шырокую аснову і звужаецца ўверсе. *Вінтоўкі ў пірамідзе.* **4.** Гімнастычная або акрабатычная фігура ў форме піраміды з групы людзей. **5.** Станок для захоўвання вінтовак (спец.). **6.** Гульня на більярдзе, пры якой шары складваюцца ў выглядзе трохвугольніка і пры дапамозе кія ўдарным шарам разбіваюцца і заганяюцца ў лузы. ‖ *прым.* **пірамі́дны**, -ая, -ае.

**ПІРАМІДА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае форму піраміды (у 1 знач.). *Пірамідальная таполя* (з каронай, якая звужаецца ўверсе).

**ПІРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Марскі разбойнік. **2.** *перан.* Пра варожых лётчыкаў, якія робяць налёты на мірныя гарады і вёскі. **3.** Пра ўгоншчыкаў самалётаў. *Паветраныя піраты.* **4.** *перан.* Пра таго, хто выкарыстоўвае што-н. з парушэннем аўтарскіх правоў. ‖ *прым.* **піра́цкі**, -ая, -ае. *Пірацкая копія камп'ютарнай праграмы.*

**ПІРАТЭ́ХНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па піратэхніцы.

**ПІРАТЭ́ХНІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* Галіна тэхнікі, звязаная з вырабам гаручых сумесей, сігнальных агнёў, ракет і пад. ‖ *прым.* **піратэхні́чны**, -ая, -ае.

**ПІ́РАЎ**. У выразе: **пірава перамога** (кніжн.) — перамога, якая дасягаецца цаной вялікіх ахвяр [ад імя эпірскага цара Піра, які перамог рымлян].

**ПІРА́ЦТВА**, -а, *н.* Занятак піратаў, марскі разбой.

**ПІРО́Г**, -рага́, *мн.* -рагі́, -рагоў, *м.* Печаны выраб з тонка раскачанага цеста з начынкай. *П. з грыбамі.* ‖ *памянш.* **піражо́к**, -жка́, *мн.* -жкі́, -жко́ў, *м.*; *прым.* **піражко́вы**, -ая, -ае. *Піражковае цеста.* ‖ *прым.* **піро́жны**, -ая, -ае.

**ПІРО́ЖНАЕ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *н.* Кандытарскі выраб невялікага памеру з салодкага здобнага цеста, звычайна з крэмам, салодкай начынкай. *Бісквітнае п.*

**ПІРО́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Той, хто пячэ або прадае пірагі. ‖ *ж.* **піро́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПІРС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Партовае збудаванне, род дамбы для прычалу суднаў з двух бакоў.

**ПІРУЭ́Т**, -а, *М* -э́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* У танцы: поўны паварот усяго цела на наску адной нагі.

**ПІСА́ГА**, -і, *ДМ* -са́зе, *мн.* -і, -са́г, *ж. і* **ПІСА́Г**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Рубец, шрам на целе. *Пісагі ад бізуноў і шампалоў.*

**ПІСА́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.*; *ДМ* -са́цы, *Т* -ай (-аю), *ж.*, *мн.* -і, -са́к. **1.** Пра пісьменніка, які піша многа, але дрэнна (разм., пагард.). *Пасрэдны п.* **2.** Пра таго, хто дрэнна, няўмела піша (у 1 знач.; разм., жарт.). *Во п. — адны кляксы ў сшытках.*

**ПІСАНІ́НА**, -ы, *ж.* (разм., пагард.). Мнагаслоўнае пісанне розных папер куды-н., а таксама самі такія паперы. *Развесці пісаніну.*

**ПІСА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* пісаць. **2.** Тое, што напісана, пісьмо, твор (іран.). *Расцягнутае п.*

**ПІ́САНЫ**, -ая, -ае. Напісаны ад рукі. *Пісаныя кнігі. Гаварыць як па пісаным* (бойка, гладка). ◊ **Пісаны прыгажун** або **пісаная прыгажуня** — пра вельмі прыгожага чалавека.

**ПІ́САР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Канцылярскі служачы, які займаецца перапіскай, складаннем і рэгістрацыяй канцылярскіх папер. *Вопытны п. Ротны п.* ‖ *прым.* **пі́сарскі**, -ая, -ае. *П. почырк.*

**ПІСА́ЦЦА**, пішуся, пі́шашся, пі́шацца; пішы́ся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Перадавацца на пісьме пэўным чынам. *Імёны і прозвішчы пішуцца* з вялікай літары. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *безас.* Аб магчымасці або жаданні пісаць (разм.). *Сёння штосьці не пішацца.* **3.** *кім.* Лічыцца ў якім-н. званні, саслоўі, называць сябе як-н., падпісваючыся (уст.). *П. дваранінам.*

**ПІСА́ЦЬ**, пішу́, пі́шаш, пі́ша; пішы́; пі́саны; *незак.* **1.** *што* і *без дап.* Перадаваць на чым-н. якія-н. графічныя знакі. *П. літары. П. разборліва.* **2.** *што.* Складаць які-н. тэкст, ствараць літаратурны твор. *П. заяву. П. вершы.* **3.** *што аб кім-чым, пра каго-што* і *з дадан. сказам.* Паведамляць ці выказваць што-н. пісьмова. *Газеты пішуць пра падзеі ў горадзе. П. пра дасягненні нацыянальнага мастацтва.* **4.** *каму.* Звяртацца да каго-н. пісьмова. *П. ў вышэйшыя інстанцыі.* **5.** *што.* Ствараць творы жывапісу. *П. пейзаж.* ◊ **Закон не пісаны** *для каго* або *каму* (разм.) — пра таго, хто дзейнічае, як яму захочацца. *Дурням закон не пісаны.* **Пішы прапала** (разм.) — аб непазбежнасці якой-н. страты, няўдачы і пад. ‖ *зак.* **напіса́ць**, -пішу́, -пі́шаш, -пі́ша; -пішы́; -пі́саны. ‖ *наз.* **піса́нне**, -я, *н.* (да 1, 2, 4 і 5 знач.).

**ПІСК**, -у, *м.* Вельмі тонкі крык, высокі гук, які ўтвараецца кім-н. *Мышыны п.*

**ПІСКАТНЯ́**, -і́, *ж.* (разм.). Працяглы многагалосы піск. *П. пацукоў.*

**ПІСКЛІ́ВЫ** *і* (разм.) **ПІСКЛЯ́ВЫ**, -ая, -ае. Вельмі тонкі, з піскам, віскліві; які ўтварае піск. *П. голас. Піскліваe дзіця.* ‖ *наз.* **піскл́івасць**, -і, *ж. і* (разм.) **піскля́васць**, -і, *ж.*

**ПІСКЛЯ́**, -і́, *мн.* пі́склі, -я́ў, *м.* і *ж.* (разм.). Тое, што і *піскун.*

**ПІ́СКНУЦЬ** *гл.* пішчаць.

**ПІСКУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Той, хто часта пішчыць. ‖ *ж.* **піску́ха**, -і, *ДМ* -ку́се, *мн.* -і, -ку́х.

**ПІ́СНУЦЬ** *гл.* пішчаць.

**ПІСТАЛЕ́Т**, -а, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Агнястрэльная зброя з кароткім ствалом для стральбы на кароткую адлегласць. ‖ *прым.* **пісталéтны**, -ая, -ае.

**ПІСТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Невялікі каўпачок з выбуховым рэчывам для загарання зарада ў патроне або снарадзе. **2.** Папяровы кружок з невялікай колькасцю выбуховага рэчыва для цацачных пісталетаў, стрэльбаў. **3.** Клапан у музычным духавым інструменце (спец.). ‖ *прым.* **пісто́нны**, -ая, -ае.

**ПІСУА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльная ракавіна ў прыбіральні са сцёкам для мачы.

**ПІСУ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* (разм., жарт.). Маленькае пісьмо, запіска.

**ПІ́СЧЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для пісання. *Пісчая папера.*

**ПІСЬМАНО́СЕЦ**, -но́сца, *мн.* -но́сцы, -но́сцаў, *м.* Тое, што і *паштальён.* ‖ *ж.* **пісьмано́ска**, -і, *ДМ* -но́сцы, *мн.* -і, -сак (разм.).

**ПІ́СЬМЕННАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Сукупнасць моўных і графічных сродкаў пісьмовых зносін. *П. народаў Поўначы.* **2.** Сукупнасць пісьмовых помнікаў якой-н. гістарычнай эпохі пэўнага народа. *Старабеларуская п.*

**ПІСЬМЕ́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца літаратурнай працай, піша мастацкія літаратурныя творы. ‖ *ж.* **пісьме́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **пісьме́нніцкі**, -ая, -ае.

**ПІСЬМЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўмее чытаць і пісаць, а таксама які ўмее пісаць граматычна правільна. *П. чалавек.* **2.** Які мае неабходныя веды, звесткі ў якой-н. галіне. *П. інжынер.* **3.** Выкананы адпаведна, з асноўнымі патрабаваннямі. *П. праект.* ‖ *наз.* **пісьме́ннасць**, -і, *ж.*

**ПІСЬМЕ́НСТВА**, -а, *н.* Тое, што і *пі́сьменнасць. Старажытнае беларускае п.* ◊ **Прыгожае пісьменства** — тое, што і мастацкая літаратура.

**ПІСЬМЁНЫ**, -аў. Пісьмовыя знакі, літары, пераважна старажытныя. *Старажытныя славянскія п.*

**ПІСЬМО́**, -а́, *мн.* пі́сьмы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) пісьмы́, -сем *і* -сьмаў, *н.* **1.** Напісаны тэкст, які пасылаецца для паведамлення чаго-н. каму-н. *Напісаць п. Заказное п.* **2.** *адз.* Уменне пісаць. *Вучыцца пісьму.* **3.** *адз.* Сістэма графічных знакаў для перадачы, занатавання размовы. *Арабскае п. Кірыліцкае п.* **4.** толькі *адз.* Стыль, манера мастацкага адлюстравання. *Рэалістычнае п.* ‖ *памянш.* **пісямцо́**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *н. і* **пісямко́**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *н.* (да 1 знач.).

**ПІСЬМО́ВЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да пісання і пісьма. *Пісьмовыя прылады. Адказаць пісьмова* (прысл.).

**ПІСЬМО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (гіст.). Зборнік узораў для пісання пісьмаў рознага зместу.

**ПІТВО́**, -а́, *н.* **1.** *гл.* піць. **2.** Тое, што п'юць, напітак. *Прахаладжальнае п.*

**ПІТНЫ́**, -а́я, -о́е. Прыгодны для піцця, які мае адносіны да піцця. *Пітная вада. Пітная сода.*

**ПІТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая неядавітая змяя сямейства ўдаваў, якая жыве пераважна ў джунглях. ‖ *прым.* **піто́навы**, -ая, -ае.

**ПІТЭКА́НТРАП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Найбольш ранні выкапнёвы чалавек, які ў эвалюцыі папярэднічаў неандэртальцу.

**ПІЎНА́Я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* Гандлёвае прадпрыемства рознічнага гандлю півам.

**ПІЎНУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм., пагард.). Тое, што і *піўная.*

**ПІЎНЫ́** *гл.* піва.

**ПІЎЦО́** *гл.* піва.

**ПІХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* Тое, што і *пхацца.*

**ПІХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што.* Тое, што і *пхаць.* ‖ *аднакр.* **піхну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **піха́нне**, -я, *н.*

**ПІ́ХТА**, -ы, *ДМ* -хце, *мн.* -ы, піхт, *ж.* Вечназялёнае хваёвае дрэва з мяккімі плоскімі шыпулькамі і з прама стаячымі шышкамі. ‖ *прым.* **пі́хтавы**, -ая, -ае.

**ПІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, піц, *ж.* Адкрытая круглая аладка з цеста з запечанымі на ёй пад соусам памідорамі і сырам або кавалачкамі гатаванага мяса, гародніны, звараных грыбоў.

**ПІЦЦЁ**, -я́, *н.* **1.** *гл.* піць. **2.** Тое, што п'юць, напітак. *Салодкае п.*

**ПІЦЬ**, п'ю, п'еш, п'е; п'ём, п'яце́, п'юць; піў, піла́, -ло́; пі; пі́ты; *незак.* **1.** *што* і *без дап.* Глытаць вадкасць. *П. каву. Хочацца п.* **2.** Тое ж пра віно, спіртныя напіткі. *П. за чыё-н. здароўе. Пі — хоць заліся!* (пра вялікую колькасць спіртных напіткаў; разм.). **3.** Ужываць спіртное; п'янстваваць. *Муж не п'е і не курыць. П. без просыпу.* ◊ **Як піць даць** (разм.) — напэўна, абавязкова. ‖ *зак.* **вы́піць**, -п'ю, -п'еш, -п'е; -іты (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **піццё**, -я́, *н.* *і* **пітво́**, -а́, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**ПІЦЭ́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -ый *і* -ы́й, *ж.* Установа грамадскага харчавання, якая спецыялізуецца на гатаванні розных відаў піц.

**ПІШЧА́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Старадаўняя пушка ці вялікае цяжкае ружжо, якое зараджалася цераз ствол. ‖ *прым.* **пішча́льны**, -ая, -ае.

**ПІШЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *незак.* Рабіць піск; гаварыць пісклівым голасам. *Пішчалі птушаняты.* ‖ *аднакр.* **пі́снуць**, -ну, -неш, -не; -ні *і* **пі́скнуць**, -ну, -неш, -не; -ні.

**ПІ́ШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Дудачка, якой прывабліваюць птушак. **2.** Пласцінка, якая гучыць у муштуку языковых і духавых музычных інструментаў (спец.). *П. габоя.* **3.** У тэатры: спецыяльнае прыстасаванне ў выглядзе дзвюх пласцінак для змянення голасу акцёра (спец.).

**ПІЯЛА́**, -ы́, *мн.* -ы́, піял, *ж.* Круглая невысокая пасудзіна без ручак для піцця, вузкая знізу і шырокая ўверсе (выкарыстоўваецца ў многіх культурах для чаю, інш. напіткаў). *П. кумысу.*

**ПІЯ́НА** (спец.). **1.** *нескл., н.* Няпоўная сіла музычнага гуку. *Мяккае п.* **2.** *прысл.* Ціха, у няпоўную сілу музычнага гуку; *проціл.* фортэ. *Іграць п.*

**ПІЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які адным з першых прыйшоў і пасяліўся ў новай недаследаванай краіне, мясцовасці. **2.** *перан.* Чалавек, які паклаў пачатак чаму-н. новаму ў якой-н. галіне (кніжн.). *Піянеры генетыкі.* **3.** Член дзіцячай арганізацыі ў былым СССР і шэрагу дзіцячых арганізацый у інш. краінах. ‖ *ж.* **піяне́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (да 1 і 3 знач.). ‖ *прым.* **піяне́рскі**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ПІЯНЕРВАЖА́ТЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Кіраўнік піянерскага атрада або дружыны. ‖ *ж.* **піянерважа́тая**, -ай, *мн.* -ыя, -ых.

**ПІЯНІ́НА**, *нескл., н.* Клавішны музычны інструмент, у якім струны, дэка і механіка размешчаны ў вертыкальнай плоскасці, від фартэпіяна. ‖ *прым.* **піяні́нны**, -ая, -ае.

**ПІЯНІ́СІМА**, *прысл.* (спец.). Вельмі ціха, цішэй, чым піяна. *Праспяваць што-н. п.*

**ПІЯНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на піяніна, раялі. ‖ *ж.* **піяні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПІЯ́СТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Назва манеты ў Турцыі, Егіпце і некаторых іншых краінах, а раней і ў Іспаніі, Партугаліі і лаціна-амерыканскіх краінах.

**ПЛА́ВАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* плаваць. **2.** Перамяшчэнне па паверхні вады, уменне, здольнасць так перамяшчацца. *Школа плавання. Займацца плаваннем. Падводнае п. Сінхроннае п.* (від спорту). **3.** Перамяшчэнне на судне ці іншым плывучым сродку, рэйс па водным шляху. *Капітан далёкага плавання. Хадзіць у п.* (плаваць на судне, служачы, працуючы на ім).

**ПЛА́ВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Тое, што і *плысці* (у 1—4 знач.), але абазначае дзеянне, якое ажыццяўляецца не ў адзін час, не за адзін прыём ці не ў адным напрамку. *П. у возеры. Мелка плавае* (перан.: пра нязначнага, малаздольнага чалавека; разм.). **2.** Умець трымацца, перамяшчацца на вадзе або ў вадзе. *Хлопчык добра плавае.* **3.** Трымацца на вадзе, не тануць. *Корак плавае.* **4.** Служыць на судне. *П. матросам на параходзе.* **5.** *перан.* Не валодаючы ведамі, гаварыць, адказваць наўгад (разм., жарт.). *П. на экзамене.* ‖ *наз.* **пла́ванне**, -я, *н.* (да 1—4 знач.). ‖ *прым.* **пла́вальны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Плавальныя рухі. П. басейн.*

**ПЛА́ВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *незак.* Станавіцца вадкім пад уздзеяннем высокай тэмпературы. *Шкло плавіцца пры высокай тэмпературы.* ‖ *зак.* **распла́віцца**, -іцца.

**ПЛА́ВІЦЬ**, пла́ўлю, пла́віш, пла́віць; пла́ўлены; *незак., што.* Ператварыць цвёрдае цела ў вадкае шляхам награвання. *П. метал.* ‖ *зак.* **распла́віць**, -ла́ўлю, -ла́віш, -ла́віць; -ла́ўлены. ‖ *наз.* **плаўле́нне**, -я, *н.* *і* **пла́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **плаві́льны**, -ая, -ае. *Плавільная печ.*

**ПЛАВО́К**, плаўка́, *мн.* плаўкі́, плаўко́ў, *м.* Тое, што і *паплавок.* ‖ *прым.* **плаво́чны**, -ая, -ае *і* **плаўко́вы**, -ая, -ае.

**ПЛАГІЯ́Т**, -у, *М* -я́це, *м.* Выдача чужога твора за свой або выкарыстанне ў сваёй працы чужога твора без спасылкі на аўтара.

**ПЛАГІЯ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца плагіятам. ‖ *прым.* **плагія́тарскі**, -ая, -ае.

**ПЛАДА...** (*гл.* **плода...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «плода...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *пладазбор, пладазменнасць, пладамыйка, пладасховішча, пладаедны, пладаягадны, пладагонны.*

**ПЛАДАВІ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які хутка размнажаецца, нараджае вялікае патомства. *Трусы вельмі пладавітыя.* **2.** *перан.* Які многа піша, напісаў многа твораў, даследаванняў. *П. пісьменнік.* ‖ *наз.* **пладаві́тасць**, -і, *ж.*

**ПЛАДАВО́ДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне пладовых і ягадных раслін як галіна раслінаводства. ‖ *прым.* **пладаво́дчы**, -ая, -ае.

**ПЛАДАНО́СНЫ**, -ая, -ае. Які прыносіць, дае плады. *Пладаноснае дрэва.* ‖ *наз.* **пладано́снасць**, -і, *ж.*

**ПЛАДАПА́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Падзенне спелых пладоў. ‖ *прым.* **пладапа́дны**, -ая, -ае.

**ПЛАДЗІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., пло́дзіцца; *незак.* **1.** Размнажацца, разводзіцца. *Не ўсе жывёліны могуць п. ў няволі.* **2.** *перан.* З'яўляцца ў вялікай колькасці, распаўсюджвацца. ‖ *зак.* **расплодзі́цца**, -ло́дзіцца.

**ПЛАДЗІ́ЦЬ**, пладжу́, пло́дзіш, пло́дзіць; *незак., каго-што.* **1.** Размнажаць, разводзіць (разм.). *П. хатнюю жывёлу.* **2.** *перан.* Садзейнічаць паяўленню, распаўсюджванню. *П. гультаёў.* ‖ *зак.* **распладзі́ць**, -ладжу́, -ло́дзіш, -ло́дзіць; -ло́джаны.

**ПЛАДО́ВЫ** *гл.* плод.

**ПЛА́ЗАМ**, *прысл.* Плоскім, шырокім бокам. *Ударыць шабляй п. Паваліцца п.*

**ПЛА́ЗМА**, -ы, *ж.* (спец.). **1.** Вадкая частка крыві. **2.** Іанізаваны газ з роўнай канцэнтрацыяй дадатных і адмоўных зарадаў. ‖ *прым.* **пла́змены**, -ая, -ае *і* **плазматы́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПЛАЗМА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да плазмы (у 1 знач.), напр.: *плазмазамяшчальны, плазмаклетачны;* 2) які мае адносіны да плазмы (у 2 знач.), напр.: *плазмабур, плазмахімія.*

**ПЛАКА́Т**, -а, *М* -ка́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Насценны ліст — малюнак з кароткім агітацыйным, навучальным або рэкламным тэкстам. ‖ *прым.* **плака́тны**, -ая, -ае. *П. жывапіс. Плакатная нагляднасць* (перан.: яркая, простая і кідкая).

**ПЛАКАТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак, які малюе плакаты.

**ПЛА́КАЦЬ**, пла́чу, пла́чаш, пла́ча; плач; *незак.* **1.** Праліваць слёзы (ад болю, гора і пад.), звычайна ўтвараючы пры гэтым нечленараздзельныя галасавыя гукі. *П. наўзрыд.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., па кім.* У некаторых выразах: чакаць каго-н., быць прызначаным каму-н. (пра што-н. непрыемнае; разм.). *Асіна плача па ім. Вяроўка па табе даўно плача.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Прапала, не вернеш (разм., жарт.). *Плакалі твае грошыкі.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Пакрывацца кроплямі вільгаці (разм.). *Запацелыя вокны плачуць.*

**ПЛА́КСА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -аў (разм.). **1.** Той, хто многа і часта плача (звычайна пра дзяцей). **2.** Пра таго, хто любіць скардзіцца, наракаць.

**ПЛАКСІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які часта плача, заўсёды гатоў плакаць. *Плаксівае дзіця.* **2.** Такі, які бывае пры плачы, які выражае гатоўнасць плакаць. *П. голас. П. твар. Гаварыць плаксіва* (прысл.). **3.** Які любіць скардзіцца, наракаць. *П. чалавек.* ‖ *наз.* **плаксі́васць**, -і, *ж.*

**ПЛАКУ́Н-ТРАВА́**, -ы́, *ж.* Шматгадовая травяністая расліна, якая выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне.

**ПЛАМБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *незак., што.* **1.** Запячатваць што-н. пломбай (у 1 знач.). *П. вагоны.* **2.** Класці пломбу (у 2 знач.). *П. зуб.* ‖ *зак.* **запламбава́ць**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны (да 2 знач.) *і* **апламбава́ць**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны (да 1 знач.; спец.). ‖ *наз.* **пламбава́нне**, -я, *н. і* **пламбо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЛАМБІ́Р**, -у, *м.* Сметанковае марожанае з арэхамі, ягадамі, шакаладам і пад. ‖ *прым.* **пламбі́рны**, -ая, -ае. *П. торт.*

**ПЛАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чарцёж, які паказвае на плоскасці мясцовасць, збудаванне і пад. *П. зямельнага ўчастка.* **2.** Загадзя намечаная сістэма мерапрыемстваў, якая прадугледжвае парадак, паслядоўнасць і тэрмін выканання работ. *Вытворчы п. Працаваць па плане. Каляндарны п.* **3.** Праект, праграма якога-н. дзеяння. *П. падарожжа.* **4.** Узаемнае размяшчэнне частак, паслядоўнасць, сістэма. *П. урока.* **5.** Месца, размяшчэнне якога-н. прадмета ў перспектыве. *Пярэдні п. Адысці на задні п.* (перан.: страціць актуальнасць, стаць другарадным). **6.** Маштаб паказу прадметаў, асоб пры здымках, у творах і пад. *Паказаць што-н. на кінаэкране буйным планам.* **7.** Галіна праяўлення чаго-н. або спосаб разгляду чаго-н., пункт гледжання (кніжн.). *Роля гераічнага плана ў кінафільме. У тэарэтычным плане.*

**ПЛАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *незак., што.* **1.** Размяшчаць згодна з пэўным планам (у 1 знач.). *П. лагер.* **2.** Складаць план развіцця чаго-н. *П. вытворчасць тавараў шырокага ўжытку.* **3.** Уключаць у план, прадугледжваць збудаванне чаго-н. *П. пабудову клуба.* **4.** Мецъ намер, разлічваць, мець у сваіх планах (разм.). *Плануем схадзіць вечарам у кіно.* ‖ *зак.* **спланава́ць**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны (да 1—3 знач.), **запланава́ць**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны (да 3 і 4 знач.) *і* **распланава́ць**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **планава́нне**, -я, *н.*

**ПЛАНАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Спецыяліст па складанні вытворчых планаў.

**ПЛА́НАВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ажыццяўляецца згодна з планам (у 2 знач.). *Планавая сістэма гаспадаркі.* **2.** Які ажыццяўляе або распрацоўвае план (у 2 знач.). *П. аддзел.* ‖ *наз.* **пла́навасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**ПЛАНАМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які ажыццяўляецца па загадзя намечаным плане. ‖ *наз.* **планаме́рнасць**, -і, *ж. П. развіцця вытворчасці.*

**ПЛАНЕРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Від спорту — лятанне на планёрах.

**ПЛАНЕРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца планерызмам. ‖ *ж.* **планеры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **планеры́сцкі**, -ая, -ае.

**ПЛАНЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -не́це, *мн.* -ы, -не́т, *ж.* Нябеснае цела, якое рухаецца вакол Сонца і свеціцца адбітым яго святлом. ‖ *прым.* **плане́тны**, -ая, -ае *і* **планета́рны**, -ая, -ае.

**ПЛАНЕТА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Устройства, якое паказвае рух планет і інш. свяціл на купалападобным экране. **2.** Будынак, дзе паказваецца дзеянне гэтага ўстройства і чытаюцца навукова-папулярныя лекцыі па астраноміі.

**ПЛАНЕТАХО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтаматычны самаходны апарат з дыстанцыйным кіраваннем, які перамяшчаецца па паверхні планеты, аддаленай ад Зямлі.

**ПЛАНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Безматорны лятальны апарат, цяжэйшы за паветра для лунаючага палёту. ‖ *прым.* **планёрны**, -ая, -ае. *П. спорт* (планерызм).

**ПЛАНЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (разм.). Кароткая вытворчая нарада па абмеркаванні плана работы.

**ПЛАНІМЕ́ТРЫЯ**, -і, *ж.* Аддзел геаметрыі, які вывучае фігуры на плоскасці. ‖ *прым.* **планіметры́чны**, -ая, -ае.

**ПЛАНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* Паступова, плаўна зніжацца пры палёце. ‖ *зак.* **сплані́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй. *Самалёт удала спланіраваў.* ‖ *наз.* **плані́раванне**, -я, *н.*

**ПЛАНІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* Размяшчэнне асобных частак чаго-н. у адносінах адна да другой. *П. пасёлка.*

**ПЛАНІРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст, які займаецца планіроўкай. ‖ *ж.* **планіро́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПЛА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Падоўжаная гладкая дошчачка, пласцінка. *Металічная п. Ордэнская п.* (з прымацаванай ордэнскай стужачкай). ‖ *памянш.* **пла́начка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **пла́начны**, -ая, -ае.

**ПЛАНКТО́Н**, -у, *м.* (спец.). Сукупнасць найдрабнейшых жывёльных і раслінных арганізмаў, якія жывуць у водных глыбінях і пераносяцца сілай цячэння. ‖ *прым.* **планкто́навы**, -ая, -ае *і* **планкто́нны**, -ая, -ае.

**ПЛАНТА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Уладальнік плантацыі (у 2 знач.). ‖ *прым.* **планта́тарскі**, -ая, -ае. *Плантатарскія норавы* (перан.: жорсткія, бесчалавечныя).

**ПЛАНТА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Вялікі ўчастак зямлі, заняты спецыяльнай сельскагаспадарчай культурай. *П. грэчкі. Чайная п.* **2.** Сельскагаспадарчае прадпрыемства. ‖ *прым.* **плантацы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Плантацыйная гаспадарка.*

**ПЛАНШЭ́Т**, -а, *М* -шэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Плоская сумка з празрыстым верхам, у якой носяць карты. **2.** Дошчачка на трох ножках, на якой умацоўваецца карта ці лінееная папера для здымкі мясцовасці (спец.). **3.** Від камп'ютара, звычайна без клавіятуры, з сэнсарным уводам. ‖ *прым.* **планшэ́тны**, -ая, -ае.

**ПЛАНШЭ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (разм.). Тое, што і *планшэт* (у 1 знач.).

**ПЛАСКАГО́Р'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Мясцовасць, размешчаная высока над узроўнем мора, з раўніннай або злёгку хвалістай паверхняй. ‖ *прым.* **пласкаго́рны**, -ая, -ае.

**ПЛАСКАГРУ́ДЫ**, -ая, -ае. З плоскімі, дрэнна развітымі грудзьмі. ‖ *наз.* **пласкагру́дасць**, -і, *ж.*

**ПЛАСКАГУ́БЦЫ**, -аў. Абцугі, канцы ў якіх (губы) маюць плоскую ўнутраную паверхню.

**ПЛАСКАДО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Пласкадонная лодка.

**ПЛАСКАДО́ННЫ**, -ая, -ае. Які мае плоскае дно. *Пласкадонная лодка.*

**ПЛАСТ**, -а́, *М* -сце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Шчыльны, плоскі слой чаго-н. *Верхнія пласты глебы. Пласты каштоўных выкапняў.* **2.** *перан.* Аднародная ў якіх-н. адносінах маса як частка чаго-н. (кніжн.). *Пласты насельніцтва. Лексічны п.* ◊ **Ляжаць як пласт** або **пластом** (разм.) — нерухома, не маючы сіл падняцца. ‖ *прым.* **пластавы́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.; спец.). *Пластавая горная парода. П. вугаль.*

**ПЛАСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што.* Рэзаць, накладваць пластамі. *П. дзёран. П. сена.* ‖ *наз.* **пластава́нне**, -я, *н.*

**ПЛАСТМА́СА**, -ы, *ж.* Пластычная маса. *Вырабы з пластмасы.* ‖ *прым.* **пластма́савы**, -ая, -ае. *Пластмасавыя талеркі.*

**ПЛАСТУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Казак асобых пяхотных часцей. ‖ *прым.* **пласту́нскі**, -ая, -ае. *Паўзці па-пластунску* (на локцях, прыціскаючыся да зямлі).

**ПЛА́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Сукупнасць мастацтваў, якія ствараюць аб'ёмныя формы (скульптура, разьба; спец.). **2.** Мастацтва рытмічных і грацыёзных рухаў цела. **3.** Тое, што і *пластычнасць* (*гл.* пластычны ў 4 знач.). ‖ *прым.* **пласты́чны**, -ая, -ае.

**ПЛАСТЫКА́Т**, -у, *М* -ка́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Від эластычнай пластмасы. ‖ *прым.* **пластыка́тавы**, -ая, -ае.

**ПЛА́СТЫКІ**, -аў, *адз.* пла́стык, -у, *м.* Пластычныя масы. ‖ *прым.* **пла́стыкавы**, -ая, -ае.

**ПЛАСТЫЛІ́Н**, -у, *м.* Матэрыял для лепкі, які складаецца з гліны і воску з дабаўленнем тлушчаў, вазеліну і інш. рэчываў, што перашкаджаюць высыханню. ‖ *прым.* **пластылі́навы**, -ая, -ае.

**ПЛА́СТЫР**, -у, *м.* Наклееная на тканіну ліпкая лекавая маса, якая прыкладваецца да ран, нарываў і пад. ‖ *прым.* **пла́стырны**, -ая, -ае.

**ПЛАСТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пластыка. **2.** Здольны пад ціскам мяняць форму; не ломкі, плаўкі. *Пластычныя масы* (матэрыялы, атрыманыя з прыродных або штучных злучэнняў — палімераў, якія фармуюцца пры награванні і пад ціскам і захоўваюць нададзеную форму). **3.** Які мае адносіны да хірургічнай перасадкі скуры і бліжэйшых падскурных тканак. *Пластычная аперацыя.* **4.** Прыгожы гарманічнасцю сваіх форм і рухаў, плаўны. *П. танец.* ‖ *наз.* **пласты́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 4 знач.).

**ПЛАСЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* Тонкая палоса з якога-н. цвёрдага матэрыялу. *Жалезная п.* ‖ *памянш.* **пласці́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **пласці́нны**, -ая, -ае.

**ПЛАСЦІ́НІСТЫ**, -ая, -ае. Які мае форму пласціны. *Пласцiністыя грыбы.* ‖ *наз.* **пласці́ністасць**, -і, *ж.*

**ПЛАСЦІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *м.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* пласціна. **2.** Дыск з гукавым запісам для прайгравальніка, патэфона і пад. **3.** Шкло са святлоадчувальным слоем для фатаграфічных здымкаў. *Зарадзіць пласцінку.* **4.** Плоская, пераважна шырокая частка лістоў раслін (спец.). *Ліставыя пласцінкі.* **5.** Складка на ніжнім баку шапачкі ў некаторых грыбоў (спец.). **6.** Здымны зубны пратэз. ‖ *прым.* **пласці́начны**, -ая, -ае.

**ПЛА́ТА**[1], -ы, *ДМ* пла́це, *ж.* **1.** *гл.* плаціць. **2.** Грашовая ўзнагарода, кампенсацыя за што-н. *Заработная п. П. за паслугі.*

**ПЛА́ТА**[2], -ы, *ДМ* пла́це, *мн.* -ы, плат, *ж.* (спец.). Дыэлектрычная пласціна для ўстаноўкі электра- і радыёэлементаў, а таксама такая пласціна з нанесенымі на ёй тонкімі электраправоднымі палоскамі. *Друкарская п. П.-аснова.*

**ПЛАТА́Н**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а, *мн.* -ы, -аў. Вялікае дрэва з зеленавата-шэрай карой і шырокім лапчастым лісцем. **2.** -у. Драўніна гэтага дрэва. ‖ *прым.* **плата́навы**, -ая, -ае. *Сямейства платанавых* (наз.).

**ПЛАТАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Чыста духоўны, пазбаўлены практычных, рэальных мэт. *Платанічныя мары. Платанічнае каханне* (заснаванае на духоўнай цязе, пазбаўленае пачуццёвасці).

**ПЛА́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які даецца за плату, падлягае аплаце. *П. праезд. Платная паліклініка.* **2.** Які атрымлівае грашовую плату за сваю работу; звязаны з атрыманнем грашовай узнагароды, платы. *П. работнік. Платная пасада.* **3.** Які карыстаецца чым-н. за плату (разм.). *П. наведвальнік.* ‖ *наз.* **пла́тнасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**ПЛАТО́**, *нескл., н.* Раўніна, размешчаная адносна высока над узроўнем мора і аддзеленая ад суседняй мясцовасці крутымі схіламі.

**ПЛАТФО́РМА**, -ы, *мн.* -ы, -фо́рм, *ж.* **1.** Памост, пляцоўка, у прыватнасці, на чыгуначных станцыях для пасадкі, пагрузкі. *Поезд адыходзіць ад трэцяй платформы.* **2.** Невялікая чыгуначная станцыя. **3.** Таварны вагон з невысокімі бартамі без даху. **4.** Палітычная праграма партыі, апазіцыі (кніжн.). *Выбарчая п. партыі.* ‖ *прым.* **платфо́рменны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПЛАЎ**, плава, *м.* У выразе: **на пла́ве** (спец.) — пра судны, плавальныя сродкі: на вадзе, у плаваючым стане. *Трымацца на плаве.*

**ПЛАЎ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) плывучы, напр.: *плаўбаза, плаўзавод, плаўкран;* 2) які мае адносіны да плавання, напр.: *плаўсастаў* (маракі ці рачнікі, якія прымаюць непасрэдны ўдзел у плаванні).

**ПЛА́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, пла́вак, *ж.* **1.** *гл.* плавіць. **2.** Выплаўлены за адзін вытворчы цыкл метал (спец.). *Домна выдала першую плаўку.*

**ПЛА́ЎКІ**[1], -ая, -ае. Здольны лёгка плавіцца. *Плаўкія металы.* ‖ *наз.* **пла́ўкасць**, -і, *ж.*

**ПЛА́ЎКІ**[2], пла́вак. Кароткія мужчынскія трусы для плавання, якія шчыльна аблягаюць цела.

**ПЛАЎКО́ВЫ** *гл.* плавок.

**ПЛАЎЛЕ́ННЕ** *гл.* плавіць.

**ПЛА́ЎЛЕНЫ**, -ая, -ае. Атрыманы шляхам плаўлення. *Плаўлены сыр* (гатунак мяккага сыру).

**ПЛА́ЎНІ**, -яў. Парослыя водалюбівай раслiннасцю нізкія берагі рэк і астраўкі, якія затапляюцца вясной. *Прырэчныя п.* ‖ *прым.* **пла́ўневы**, -ая, -ае.

**ПЛАЎНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Орган руху ў рыб і водных жывёл. ‖ *прым.* **плаўніко́вы**, -ая, -ае.

**ПЛА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Роўны, без рэзкіх пераходаў. *Плаўная паходка. П. танец. Плаўна* (прысл.) *чытаць.* ○ **Плаўны зычны** — у фанетыцы: назва зычных «л» і «р». ‖ *наз.* **пла́ўнасць**, -і, *ж.*

**ПЛАФО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Столь, упрыгожаная жывапісам, лепкай, мазаікай. **2.** Род абажура для электрычнай лямпы, звычайна на стале або на сцяне. ‖ *прым.* **плафо́нны**, -ая, -ае.

**ПЛА́ХА**, -і, *ДМ* пла́се, *мн.* -і, плах, *ж.* **1.** Кавалак расколатага ўздоўж бервяна. **2.** Калода, на якой даўней адсякалі галаву прыгаворанаму да пакарання смерцю, а таксама памост, на якім адбывалася пакаранне. *Класці галаву на плаху* (таксама перан.).

**ПЛА́ХТА**, -ы, *ДМ* -хце, *ж.* Саматужнага вырабу ўкраінская тканіна, паласатая і клятчастая, а таксама чатырохвугольны адрэз яе, які носіцца ў якасці спадніцы. ‖ *прым.* **пла́хтавы**, -ая, -ае.

**ПЛАЦДА́РМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прастора, на якой рыхтуецца і разгортваецца ваенная аперацыя. **2.** Участак берага, на які высаджваюцца фарсіруючыя раку войскі. **3.** *перан.* Зыходны пункт для чаго-н. *П. для далейшых разважанняў.*

**ПЛАЦЕ́Ж**, -цяжу́, *м.* **1.** *гл.* плаціць. **2.** *мн.* -цяжы́, -о́ў. Сума, якая павінна быць выплачана. *Вялікі п.* ‖ *прым.* **плаце́жны**, -ая, -ае. *Плацежнае абавязацельства.*

**ПЛАЦЕЖАЗДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (афіц.). Здольны пакрыць свае грашовыя абавязацельствы, які мае магчымасць плаціць. *П. пакупнік.* ‖ *наз.* **плацежаздо́льнасць**, -і, *ж.*

**ПЛАЦЕ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (афіц.). Той, хто ўносіць плацеж, плацяжы. *П. падаткаў.* ‖ *ж.* **плаце́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПЛА́ЦІНА**, -ы, *ж.* Высакародны тугаплаўкі бліскучы метал шаравата-белага колеру. ‖ *прым.* **пла́цінавы**, -ая, -ае. *Плацінавая руда.*

**ПЛАЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* Гідратэхнічнае збудаванне, якое перагароджвае раку для падняцця ўзроўню вады. *П. са шлюзамі.* ‖ *прым.* **плаці́нны**, -ая, -ае.

**ПЛАЦІ́ЦЬ**, плачу́, пла́ціш, пла́ціць; *незак.* **1.** *што* і *без дап.* Аддаваць грошы як належнае за што-н. *П. за пакупку. П. падаткі. За здароўе лепш п., чым расплачвацца* (прыказка). **2.** *перан., чым за што.* Так або інакш адказваць на чый-н. учынак (кніжн.). *П. паслугай за паслугу. П. дабром за зло.* ‖ *зак.* **заплаці́ць**, -лачу́, -ла́ціш, -ла́ціць; -ла́чаны. ‖ *наз.* **плаце́ж**, -цяжу́, *м.* (да 1 знач.). *П. з растэрміноўкай.* ‖ *прым.* **плаце́жны**, -ая, -ае.

**ПЛАЦКА́РТА**, -ы, *ДМ* -рце, *мн.* -ы, -ка́рт, *ж.* Білет на нумараванае месца ў вагоне цягніка. ‖ *прым.* **плацка́ртны**, -ая, -ае. *П. вагон.*

**ПЛА́ЦЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Тое, што і *сукенка.* **2.** *зб.* Бялізна (разм.). *Мыць п.* ‖ *прым.* **пла́ццевы**, -ая, -ае. *Плаццевыя тканіны.*

**ПЛАЦЭ́НТА**, -ы, *ДМ* -нце, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (спец.). Орган у цяжарнай жанчыны або самкі млекакормячых, пры дапамозе якога ажыццяўляецца сувязь плода і матчынага арганізма; дзіцячае месца, паслед. ‖ *прым.* **плацэнта́рны**, -ая, -ае. *Плацэнтарныя* (наз.; жывародныя млекакормячыя).

**ПЛАЧ**, -у, *м.* Нечленараздзельныя галасавыя гукі, якія выражаюць гора ці моцную жальбу і суправаджаюцца слязамі. *П. дзіцяці.*

**ПЛА́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Палавіна расколатага ўздоўж бервяна. **2.** Металарэзны інструмент для нанясення разьбы на шрубы, балты і інш. (спец.).

**ПЛАШКО́ЎТ**, -а, *М* -ўце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пласкадоннае бяспалубнае несамаходнае судна для перавозкі грузаў, для наводкі плывучых мастоў. ‖ *прым.* **плашко́ўтны**, -ая, -ае. *П. мост* (на плашкоўтах).

**ПЛАШЧ**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Лёгкае паліто пераважна з непрамакальнай тканіны. ‖ *прым.* **плашчо́вы**, -ая, -ае.

**ПЛАШЧА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Тое, што і *плашка* (у 1 знач.). **2.** Плоскі бок чаго-н.

**ПЛАШЧАНІ́ЦА**, -ы, *ж.* Пакрывала ў выглядзе кавалка палатна з адлюстраваннем цела Хрыста ў труне.

**ПЛАШЧ-ПАЛА́ТКА**, плашч-пала́ткі, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Непрамакальная накідка, якая можа служыць і плашчом і палаткай.

**ПЛЕАНА́ЗМ**, -у, *м.* (спец.). Моўны зварот, у якім без патрэбы паўтараюцца аднолькавыя ці блізкія па значэнні словы (напр., свая ўласная сям'я). ‖ *прым.* **плеанасты́чны**, -ая, -ае.

**ПЛЕБЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** У Старажытным Рыме: свабодны, але юрыдычна нераўнапраўны чалавек ніжэйшага саслоўя. **2.** Чалавек, які выйшаў з народа, не дваранскага паходжання. ‖ *прым.* **плебе́йскі**, -ая, -ае.

**ПЛЕБІСЦЫ́Т**, -у, *М* -цы́це, *м.* (спец.). Апытанне ўсяго насельніцтва пры рашэнні асабліва важных пытанняў; рэферэндум. *Правесці п.* ‖ *прым.* **плебісцы́тны**, -ая, -ае.

**ПЛЕД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікае пакрывала са шчыльнай шарсцяной і інш., звычайна клятчастай тканіны, з бахрамой. *Захутацца ў п.*

**ПЛЕКСІГЛА́С**, -у, *м.* (спец.). Празрыстая бясколерная пластмаса; арганічнае шкло. ‖ *прым.* **плексігла́савы**, -ая, -ае.

**ПЛЕ́МЯ**, -мя *і* -мені, *Д* -мю *і* -мені, *В* -мя, *Т* -мем *і* -менем, *М* (аб) -мі *і* -мені, *мн.* плямёны, -мён *і* -мёнаў, *н.* **1.** У дакласавым грамадстве: этнічная і сацыяльная супольнасць людзей, звязаных родавымі адносінамі, агульнай мовай і тэрыторыяй. *Першабытныя плямёны.* **2.** *перан.* Народ, народнасць (уст.). **3.** *перан., адз.* Людзі, пакаленне людзей (высок.). *П. змагароў.* ◊ **На племя** (спец.) — для атрымання патомства. ‖ *прым.* **племянны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.). *П. быт.*

**ПЛЕМЯННЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* племя. *Племянныя мовы.* **2.** Пародзісты, чыстакроўны. *Племянная жывёла. П. бык* (пакінуты для прадаўжэння пароды).

**ПЛЕНА́РНЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца пры ўдзеле ўсіх членаў выбарнага кіруючага органа, якой-н. арганізацыі і пад. *Пленарнае пасяджэнне.*

**ПЛЕ́НУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сход у поўным саставе членаў выбарнага органа якой-н. арганізацыі. *Закрыты п. П. праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пленум Вярхоўнага суда.*

**ПЛЕ́СНЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее *і* **ПЛЯСНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *незак.* Пакрывацца плесняй. ‖ *зак.* **запле́снець**, -ее, **запляснЕ́ць**, -е́е, **спле́снець**, -ее *і* **спляснЕ́ць**, -е́е.

**ПЛЕ́СНЯ**, -і, *ж.* Мікраскапічныя грыбкі, якія збіраюцца ў выглядзе пушыстага налёту розных колераў на чым-н. гніючым, сырым. Сцены старога памяшкання пакрыты плесняй. *П. мяшчанства* (перан.). ‖ *прым.* **пле́сневы**, -ая, -ае. *П. налёт.*

**ПЛЕ́СЦІ**, плятў, пляцЕ́ш, пляцЕ́; плячо́м, плецяцЕ́, плятУ́ць; плЁў, пляла́, -ло́; пляці́; пле́цены; *незак., што.* **1.** Перавіваючы (лазу, ніці, стужкі і пад.), злучаць у адно цэлае, вырабляць. *П. кошык. П. вянок.* **2.** *перан.* Гаварыць што-н. недарэчнае, узводзіць паклёп, нагаворваць (разм.). *П. інтрыгі. П. бязглуздзіцу. На гэту жанчыну рознае плялі.* ‖ *зак.* **сплесці**, сплятў, спляцЕ́ш, спляцЕ́; спляцём, сплецяцЕ́, сплятУ́ць; сплЁў, спляла́, -ло́; спляці́; сплЕ́цены. ‖ *наз.* **пляцЕ́нне**, -я, *н.*

**ПЛЕ́СЦІСЯ**, плятУ́ся, пляцЕ́шся, пляцЕ́цца; пляцёмся, плецяцЕ́ся, плятУ́цца; плЁўся, пляла́ся, -ло́ся; пляці́ся; *незак.* (разм.). Ісці павольна, ледзь перастаўляючы ногі. *Конік ледзь плёўся ад стомы.*

**ПЛЕ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, пле́вак, *ж.* **1.** Тонкая абалонка, якая ўтвараецца на паверхні нерухомай вадкасці. *Сажалка пакрылася плеўкай.* **2.** Перапонка. *Пальцы задніх ног у баброў злучаны плеўкай.* **3.** Тонкі пласт чаго-н. *П. туману.* ‖ *прым.* **пле́ўкавы**, -ая, -ае.

**ПЛЕ́ЎРА**, -ы, *ж.* Абалонка, якая пакрывае лёгкія і сценкі грудной поласці ў вышэйшых хрыбетных жывёл і чалавека. ‖ *прым.* **плеўра́льны**, -ая, -ае.

**ПЛЕЎРЫ́Т**, -у, *М* -ры́це, *м.* Запаленне плеўры. ‖ *прым.* **плеўры́тны**, -ая, -ае.

**ПЛЕХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Месца на галаве, дзе не выраслі або вылезлі валасы. **2.** Голае месца сярод збажыны, лесу і пад.

**ПЛЕ́ЦЕНЫ**, -ая, -ае. Зроблены пры дапамозе пляцення. *Плеценая мэбля.*

**ПЛЕЧАВЫ́** *гл.* плячо.

**ПЛЕШ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *плех.*

**ПЛЕ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Верхняя расшыраная і звычайна плоская частка чаго-н., што мае форму ножкі, стрыжня і пад. *П. цвіка.* **2.** Верхні канец караняплода. *П. трускалкі.* ‖ *прым.* **пле́шачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПЛЕЯ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* (высок.). **1.** Група выдатных дзеячаў пэўнай эпохі ў якой-н. галіне культуры, навукі. *П. выдатных пісьменнікаў.* **2.** (з вялікай літары), *мн.* Плеяды, Плеяд. Вялікая колькасць яркіх зорак у сузор'і Цяльца.

**ПЛЁН**, -у, *м.* **1.** Тое, што вырашчана: садавіна, гародніна, зерне і пад.; ураджай. *Даваць п.* **2.** *перан.* Вынік стаgoing старанняў, дасягненне. *П. сваёй працы.*

**ПЛЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Эластычная стужка са святлоадчувальным слоем для фатаграфічных і кінематаграфічных здымкаў. *Праявіць плёнку. Зняць на плёнку.* **2.** Эластычная стужка са спецыяльнага матэрыялу для магнітафоннага запісу. **3.** Тое, што і *плеўка* (у 1 знач.). **4.** Тонкая празрыстая бясколерная матэрыя сінтэтычнага паходжання. *Поліэтыленавая п.* ‖ *прым.* **плёначны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПЛЁННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які дае плён (у 1 знач.). *Плённая зямля.* **2.** *перан.* Які дае добрыя вынікі, прадукцыйны. *Плённая дзейнасць на ніве культуры. Плённа* (прысл.) *працаваць.* ‖ *наз.* **плённасць**, -і, *ж.*

**ПЛЁС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Шырокі ціхі ўчастак ракі паміж перакатамі або астравамі. *Рачны п.* ‖ *прым.* **плёсавы**, -ая, -ае.

**ПЛЁСКАТ**, -у, *ДМ* -каце, *м.* Шум ад падзення хвалі на што-н., ад удару чым-н. па вадзе. *П. хваль. П. вёсел.*

**ПЛЁТКА**[1], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Раменны, вяровачны і пад. бізун. *Раменная п.* ‖ *прым.* **плётачны**, -ая, -ае.

**ПЛЁТКА**[2], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Чутка пра каго-, што-н., заснаваная на недакладных ці свядома няпраўдападобных звестках. *Ходзяць розныя плёткі.*

**ПЛІ́НТУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вузкая планка, якая закрывае шчыліну паміж падлогай і сцяной. **2.** Вонкавы выступ у ніжняй частцы якога-н. збудавання. ‖ *прым.* **плі́нтусны**, -ая, -ае.

**ПЛІС**, -у, *м.* (уст.). Баваўняны аксаміт. ‖ *прым.* **плі́савы**, -ая, -ае.

**ПЛІСІРАВА́ЦЬ**, -рўю, -рўеш, -рўе; -рўй; -рава́ны; *незак., што.* Рабіць плісэ (у 1 знач.) на чым-н. ‖ *наз.* **плісіро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **плісірава́нне**, -я, *н.*

**ПЛІ́СКА**, -і, *ДМ* плі́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Невялікая птушка атрада вераб'іных з доўгім і вузкім хвастом. ‖ *прым.* **плі́скавы**, -ая, -ае.

**ПЛІСЭ́**. **1.** *нескл., н.* Дробныя запрасаваныя паралельна складкі на матэрыі. **2.** *нязм., у знач. прым.* Пра швейныя вырабы з такімі складкамі. *Каўнерык п.*

**ПЛІТА́**, -ы́, *ДМ* пліцЕ́, *мн.* плі́ты *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) пліты́, пліт, *ж.* **1.** Плоскі прамавугольны кавалак металу, каменя або іншага

матэрыялу. *Гранітная п.* **2.** Кухонная печ з канфоркамі. *Газавая п. Кухонная п.* ‖ *памянш.* **плітка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.*

**ПЛІ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** *гл.* пліта. **2.** Невялікі плоскі чатырохвугольны прадмет. *П. шакаладу.* **3.** *зб.* Абліцовачны матэрыял такой формы. *Кафельная п.* **4.** Электрычны пераносны награвальны прыбор для прыгатавання ежы. *Спіраль для пліткі.* ‖ *прым.* **плі́тачны**, -ая, -ае (да 2—4 знач.).

**ПЛІТНЯ́К**, -у́, *м.* Вапняковая або пясчаная парода, якая лёгка раздзяляецца на пліты. *Набярэжная з плітняку.* ‖ *прым.* **плітнякóвы**, -ая, -ае.

**ПЛІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, пліц, *ж.* (спец.). **1.** Чарпак для злівання вады на судне. **2.** Лопасць параходнага кола.

**ПЛОД**, -а, *М* -дзе, *мн.* плады́, -óў, *м.* **1.** Частка расліны, якая развіваецца з завязі кветкамі і змяшчае ў сабе насенне. *Ядомыя плады.* **2.** Зародак дзіцяняці (чалавека, жывёлы) ва ўлонні мацеры. **3.** *перан., чаго.* Прадукт якой-н. дзейнасці, вынік чаго-н. *Плады творчай працы.* ‖ *прым.* **пладóвы**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **плóдны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.). *Пладовыя дрэвы. Пладовыя кансервы* (выробленыя з пладоў). *Пладовы сад. Плодная абалонка* (якая акружае плод).

**ПЛОДА...** (а таксама **плада...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да плода (у 1 знач.), да пладоў, напр.: *плодаапрацоўка, плодазавод, плодакансервавы, плодаперапрацоўчы;* 2) які мае адносіны да плода (у 2 знач.), напр.: *плодавыганяльны, плодавыгнанне.*

**ПЛОДААГАРÓДНІННЫ**, -ая, -ае. Звязаны з вырошчваннем пладоў і агародніны, іх апрацоўкай і захоўваннем. *Плодаагароднінная база.*

**ПЛÓЙМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (разм.). Вельмі вялікая колькасць, множства (пра жывых істот). *П. мух.*

**ПЛÓМБА**, -ы, *мн.* -ы, -мб *і* -мбаў, *ж.* **1.** Бляшаная пласцінка або сплюснуты кавалачак свінцу ці іншага матэрыялу, якімі апячатваюць розныя прадметы, тавары. *Таможная п.* **2.** Пластычнае рэчыва, якім закладваецца поласць сапсаванага зуба. *П. вывалілася.* ‖ *прым.* **плóмбавы**, -ая, -ае.

**ПЛОСКАСТУПНЁВАСЦЬ**, -і, *ж.* Фізічны недахоп нагі — плоская, без выгіну форма ступні.

**ПЛÓСКАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* плоскі. **2.** У геаметрыі: паверхня, якая мае два вымярэнні. *Лінія на плоскасці.* **3.** Роўная, гладкая паверхня. *П. самалёта* (крыло). *Нахіленая п. Каціцца па нахіленай плоскасці* (перан.: пра паступовае маральнае падзенне). **4.** *перан.* Галіна, сфера распаўсюджання чаго-н., пункт гледжання. *Разгледзець пытанне ў іншай плоскасці.* ‖ *прым.* **плóскасны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Плоскасныя вымярэнні.*

**ПЛÓСКІ**, -ая, -ае. **1.** Роўны, без узвышшаў і паглыбленняў, з прамой і гладкай паверхняй. *П. дах.* **2.** *перан.* Пазбаўлены арыгінальнасці, банальны, пошлы. *Плоскія жарты. Плоска* (прысл.) *вастраслoвіць.* ‖ *наз.* **плóскасць**, -і, *ж.*

**ПЛОТ**, -а, *М* плóце, *мн.* платы́, -óў, *м.* Агароджа, пераважна з жэрдак. ‖ *прым.* **плóтавы**, -ая, -ае.

**ПЛÓТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Невялікая прэснаводная рыба сямейства карпавых. ‖ *памянш.* **плóтачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ПЛОЎ**, плóву, *м.* Усходняя страва, прыгатаваная з варанага ў барановым тлушчы рысу з прыправай.

**ПЛОЦЬ**, -і, *ж.* (уст.). Тое, што і *цела* (у 2 знач.). ◊ **Плоць і кроў** *каго, чыя* або **плоць ад плоці** *чыёй* (высок.) — чыё-н. роднае дзіця, тварэнне.

**ПЛÓШЧА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Частка плоскасці, абмежаваная замкнутай ломанай або крывой лініяй. *П. чатырохвугольніка.* **2.** Незабудаванае вялікае і роўнае месца (у горадзе, вёсцы), ад якога звычайна разыходзяцца ў розныя бакі вуліцы. *П. Перамогі ў Мінску.* **3.** Прастора, памяшканне, прызначаныя для якіх-н. мэт. *П. пад азімыя культуры. Жылая п.*

**ПЛУГ**, -а, *М* плу́зе, *мн.* плугі́, -óў, *м.* Сельскагаспадарчая прылада з шырокім металічным лемяшом і адвалам для ворыва. *Запрэгчы каня ў п.* ‖ *памянш.* **плужóк**, -жка́, *мн.* -жкі́, -жкóў, *м.* ‖ *прым.* **плугавы́**, -а́я, -óе.

**ПЛУТАКРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Прадстаўнік найбольш багатай вярхушкі ў плутакратычнай дзяржаве.

**ПЛУТАКРА́ТЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Палітычнае панаванне, улада багатых. *Рымская п.* ‖ *прым.* **плутакраты́чны**, -ая, -ае.

**ПЛЫВÉЦ**, плыўца́, *мн.* плыўцы́, плыўцóў, *м.* Спартсмен, які займаецца плаваннем, а таксама той, хто плавае, умее плаваць. *Добры п.* ‖ *ж.* **плыу́чыха**, -і, *ДМ* -чысе, *мн.* -і, -чых.

**ПЛЫВУ́Н**, -у́, *м.* Глеісты, пясчаны ці суглінкавы слой падглебы, насычаны вадой і таму здольны расплывацца. ‖ *прым.* **плывýнны**, -ая, -ае.

**ПЛЫВУНÉЦ**, -нца́ *і* -нцу́, *мн.* -нцы́, -нцóў, *м.* **1.** -нца́. Жук, які жыве ў стаячай або павольна цякучай прэснай вадзе. **2.** -нцу́. Насякомаедная водная расліна з шарападобнымі пухіркамі на лісцях, якія ўлоўліваюць дробных водных насякомых і харчуюцца імі (спец.).

**ПЛЫВУ́ЧАСЦЬ**, -і, *ж.* Уласцівасць плывучага (у 2 і 3 знач.).

**ПЛЫВУ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які плавае, знаходзіцца, размешчаны на вадзе. *П. мост. П. маяк.* **2.** Здольны трымацца на паверхні вады, плаваць. *Плывучыя матэрыялы.* **3.** Пра грунт: які лёгка размываецца, перамяшчацца дзякуючы вялікай колькасці вады ў ім. *Плывучая гліна.*

**ПЛЫНЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Імклівa цякучая водная маса. *Рачная п.* **2.** Рухомы паток паветра. *Паветраная п. Людская п.* (перан.). **3.** *перан.* Кірунак у якой-н. сферы дзейнасці. *Палітычныя плыні. Літаратурная п.*

**ПЛЫ́СЦІ** *і* **ПЛЫЦЬ**, плыву́, плывéш, плывé; плывём, плывяцé, плыву́ць; плыў, плыла́, -лó; плыві́; *незак.* **1.** Перамяшчацца па паверхні вады або ў вадзе. *Лодка плыла супраць цячэння.* **2.** Ехаць на судне ці на іншым плывучым сродку. *П. на параходзе.* **3.** *перан.* Плаўна рухацца або плаўна распаўсюджвацца. *Месяц плыве па небе. Над вёскай плыў водар садовай квецені. Над рэчкай плыла знаёмая мелодыя.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Праходзіць перад вачамі рухомымі кругамі (пры паўпрытомным стане). *Перад вачамі плылі зялёныя кругі.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Праходзіць, мінаць. *Плыла позняя верас躯нёвая ноч.* ◊ **Плысці па цячэнні** — не супраціўляцца абставінам; прыстасоўвацца. **Плысці (плыць) у рукі** (разм.) — пра тое, што лёгка дастаецца каму-н.

**ПЛЫТ**, -а́, *М* плыцé, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Бярвенне, звязанае ў адзін або некалькі радоў для сплаву па вадзе. *Гнаць плыты.* ‖ *прым.* **плытавы́**, -а́я, -óе.

**ПЛЫТАГÓН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца сплавам плытоў.

**ПЛЫ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які звязвае бярвенне ў плыты і прымае ўдзел у сплаве. ‖ *прым.* **плы́тніцкі**, -ая, -ае.

**ПЛЫЎЧЫХА** *гл.* плывец.

**ПЛЮГА́ВЫ**, -ая, -ае (разм., пагард.). Мізэрны, худы, нікчэмны з выгляду. ‖ *наз.* **плюга́васць**, -і, *ж.*

**ПЛЮМА́Ж**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аздабленне з пер'я на галаўным уборы і на надлобным рэмені конскай збруі. ‖ *прым.* **плюма́жны**, -ая, -ае.

**ПЛЮ́НУЦЬ** *гл.* пляваць.

**ПЛЮРАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Філасофскае вучэнне, згодна з якім існуюць некалькі (або множства) незалежных духоўных пачаткаў быцця (спец.). **2.** Разнастайнасць поглядаў, ідэй, форм дзейнасці (кніжн.). *П. думак.* ‖ *прым.* **плюралісты́чны**, -ая, -ае.

**ПЛЮРАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік плюралізму. ‖ *прым.* **плюралі́сцкі**, -ая, -ае.

**ПЛЮС**, -а, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Матэматычны знак у выглядзе крыжыка (+), які абазначае складанне і дадатную велічыню. **2.** *у знач. нязм. слова.* З дабаўленнем. *Чатыры п. два будзе шэсць.* **3.** *перан.* Дадатны бок, перавага. *Узважыць усе плюсы і мінусы.* **4.** У знач. злучніка «ды[1]» (у 2 знач.), звычайна ў спалучэнні з «яшчэ» (разм.). *Цяжка мне — вучыцца, п. яшчэ малое дзіця.* **5.** Пры ўказанні на тэмпературу паветра абазначае: вышэй нуля. *На тэрмометры п. дванаццаць градусаў.* ◊ **Плюс-мінус** — з магчымым разыходжаннем у бок павелічэння ці памяншэння. ‖ *прым.* **плю́савы**, -ая, -ае (да 3 і 5 знач.). *Плюсавая тэмпература* (вышэй нуля).

**ПЛЮ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пераліваецца,

ударацца аб што-н. (пра вадкасць). *Вада плюхаецца на дне чоўна.* **2.** Абдаваць сябе або каго-н. пырскамі. *Хлопчык плюхаўся ў вадзе.* **3.** Падаць, шлёпацца ў ваду, гразь і пад. *Дзеці з разгону плюхаюцца ў рэчку.* ‖ *аднакр.* **плю́хнуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся (да 1 і 3 знач.). ‖ *наз.* **плю́ханне**, -я, *н.*

**ПЛЮ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Тое, што і *плюхацца* (у 1 і 3 знач.). **2.** *што* і *чаго.* Рэзкім рухам выліваць (разм.). *П. ваду ў цэбар.* ‖ *аднакр.* **плю́хнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **плю́ханне**, -я, *н.*

**ПЛЮШ**, -у́, *м.* Шарсцяная або баваўняная тканіна з доўгім ворсам. ‖ *прым.* **плю́шавы**, -ая, -ае. *Плюшавае паліто.*

**ПЛЮШЧ**, -у́, *м.* Паўзучая расліна, якая абвіваецца вакол сваёй апоры. ‖ *прым.* **плю́шчавы**, -ая, -ае.

**ПЛЮ́ШЧЫЦЬ**[1], -чу, -чыш, -чыць; *незак., што.* Закрываць, заплюшчваць (вочы).

**ПЛЮ́ШЧЫЦЬ**[2], -чу, -чыш, -чыць; *незак., што.* Удараючы або сціскаючы, рабіць плоскім, пляскатым. *П. цвік.* ‖ *зак.* **сплю́шчыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны. ‖ *наз.* **плюшчэ́нне**, -я, *н.* (спец.). ‖ *прым.* **плюшчы́льны**, -ая, -ае (спец.). *П. станок.*

**ПЛЯВА́**, -ы́, *ж.* Тонкая скурка, перапонка ў жывёльным або раслінным арганізме.

**ПЛЯВА́ЛЬНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Пасудзіна для сплёўвання.

**ПЛЯВА́ЦЦА**, плююся, плюешся, плюе́цца; плюёмся, плюяце́ся, плюю́цца; плю́йся; *незак.* **1.** Мець звычку пляваць (у 1 знач.). *Конь п.!* **2.** Пляваць на каго-н. ці адзін на другога.

**ПЛЯВА́ЦЬ**, плюю, плюе́ш, плюе́; плюём, плюяце́, плюю́ць; плюй; *незак.* **1.** Выкідваць з рота сліну. *П. на падлогу.* **2.** *перан., на каго-што.* Зусім не лічачыся з кім-, чым-н., паказваць пагардлівую абыякавасць (разм.). *П. ён хацеў на ваша папярэджанне.* **3.** *у знач. вык.* Выражае абыякавыя або пагардлівыя адносіны да чаго-н. (разм.). *Суседзі злуюцца, а мне п.!* ‖ *зак.* **напļява́ць**, -люю, -люе́ш, -люе́; -люём, -люяце́, -люю́ць; -лю́й. ‖ *аднакр.* **плю́нуць**, -ну, -неш, -не; плюнь (да 1 і 2 знач.). *П. няма куды* (таксама перан.: вельмі цесна; разм.). ◊ **Раз плюнуць** (разм.) — нічога не значыць, вельмі лёгка зрабіць што-н. *Яму гэта раз п.* ‖ *наз.* **пліва́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПЛЯВО́К**, пляўка́, *мн.* пляўкі́, пляўко́ў, *м.* Выплюнуты згустак сліны, а таксама перан.: пра што-н. надта абразлівае, грубае.

**ПЛЯВУ́ЗГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Гаварыць абы-што, малоць языком без толку, пустое. ‖ *зак.* **наплявýзгаць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **плявýзганне**, -я, *н.*

**ПЛЯЖ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адхоністы бераг, зручны для купання і сонечных ванна́ў. *Пясчаны п.* ‖ *прым.* **пля́жны**, -ая, -ае. *П. касцюм.*

**ПЛЯ́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; *незак.* (разм.). **1.** *што.* Сячы, нішчыць; глуміць. *П. векавы лес.* **2.** Моцна біць каго-н. чым-н. ‖ *наз.* **пля́жанне**, -я, *н.*

**ПЛЯ́МА**, -ы, *мн.* -ы, плям, *ж.* **1.** Месца іншай афарбоўкі на якой-н. паверхні, а таксама месца, забруджанае чым-н. *Радзімая п. Чарнільная п. Белая п.* (на геаграфічнай карце: абазначэнне недаследаванай мясцовасці; таксама перан.: пра што-н. невядомае, нявывучанае). *Жоўтая п.* (у сятчатцы вока: месца, вельмі чуллівае да святла; спец.). **2.** *перан.* Што-н. ганебнае, надта непрыемнае. *П. на рэпутацыі.* ‖ *памянш.* **пля́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* (да 1 знач.).

**ПЛЯМЕ́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Сын брата або сястры.

**ПЛЯМЕ́ННІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Дачка брата або сястры.

**ПЛЯ́МІНА**, -ы, *мн.* -ы, -мін, *ж.* (разм.). Тое, што і *пляма* (у 1 знач.). *Чарнільная п.*

**ПЛЯ́МІСТЫ**, -ая, -ае. З плямамі іншага, чым асноўная афарбоўка, колеру. *П. алень.* ‖ *наз.* **пля́містасць**, -і, *ж.*

**ПЛЯ́МІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *незак.* Пакрывацца плямамі. *Светлы матэрыял хутка пляміцца.*

**ПЛЯ́МІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; *незак., каго-што.* **1.** Пакідаць плямы на чым-н. **2.** *перан.* Ганьбіць, знеслаўляць. *П. рэпутацыю.* ‖ *зак.* **спля́міць**, -млю, -міш, -міць; -млены *і* **запля́міць**, -млю, -міш, -міць; -млены. ‖ *наз.* **пля́мленне**, -я, *н.*

**ПЛЯСК**, -у, *м.* (разм.). **1.** Гук, які атрымліваецца пры ўдары чым-н. па вадзе або вады аб што-н. *П. вады.* **2.** Гук, які атрымліваецца пры ўдары далоні аб далонь або далонню па чым-н. *П. далоней.*

**ПЛЯСКА́ТЫ**, -ая, -ае. Роўны, без звычайнай пукатасці, з гладкай паверхняй. *П. камень.* ‖ *наз.* **пляска́тасць**, -і, *ж.*

**ПЛЯ́СКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Удараць далонню аб далонь або далонню па чым-н. *П. у далоні.* ‖ *наз.* **пля́сканне**, -я, *н.*

**ПЛЯСКА́ЦЬ**[1], пляшчу́, плёшчаш, плёшча; пляшчы́; *незак.* **1.** Удараць чым-н. плоскім. **2.** Тое, што і *пля́скаць. Дзеці плешчуць у ладкі.* ◊ **Пляскаць языком** (разм., неадабр.) — гаварыць многа і абы-што. ‖ *наз.* **пляска́нне**, -я, *н.*

**ПЛЯСКА́ЦЬ**[2], пляшчу́, плёшчаш, плёшча; пляшчы́; пляска́ны; *незак., што.* Рабіць пляскатым, плюшчыць. *П. канец цвіка.* ‖ *наз.* **пляска́нне**, -я, *н.*

**ПЛЯСНЕ́ЦЬ** *гл.* плеснець.

**ПЛЯ́СНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* (разм.). З шумам упасці або ўдарыцца. *П. на падлогу. П. ў гразь.*

**ПЛЯ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* **1.** *каго* і *без дап.* Ударыць далонню аб далонь або далонню па кім-, чым-н. *П. па твары.* **2.** *што.* Кінуць з шумам або ўпасці з шумам (разм.). *П. мокрую анучу аб падлогу.*

**ПЛЯТКА́Р**, плеткара́, *мн.* плеткары́, плеткаро́ў, *м.* Чалавек, які пляткарыць. ‖ *ж.* **плятка́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **плятка́рскі**, -ая, -ае.

**ПЛЯТКА́РСТВА**, -а, *н.* Распаўсюджванне плётак[2]. ‖ *прым.* **плятка́рскі**, -ая, -ае.

**ПЛЯТКА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* Распаўсюджваць плёткі[2]. ‖ *наз.* **плятка́ранне**, -я, *н.*

**ПЛЯЦ**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Зямля пад сядзібай, агародам. *Паставіць хату на добрым пляцы.* **2.** Прызначаная для забудовы тэрыторыя ў горадзе або вёсцы. **3.** Плошча для ваенных парадаў і страявых заняткаў (гіст.). *Вучэбны п.*

**ПЛЯЦЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* плесці. **2.** Спосаб злучэння нітак, сцяблін і інш. палос эластычнага матэрыялу. *Карункавае п. П. кошыкаў.*

**ПЛЯЦЕ́НЬ**, плятня́, *мн.* плятні́, плятнёў, *м.* Агароджа з пераплеценых тонкіх галін.

**ПЛЯЦЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Што-н. сплеценае ўдоўж з некалькіх пасмаў, кавалкаў і пад. **2.** Плеценая кашолка. **3.** Падоўжаная вітая белая булка. **4.** Выраб тканіны з асобым рысункам перапляцення нітак. *Вытанчаная п.*

**ПЛЯЦО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -цо́вак, *ж.* **1.** Спецыяльна абсталяваны ўчастак зямлі (ці асобае месца ў памяшканні), адведзены для якіх-н. мэт. *Спартыўная п. Дзіцячая п.* (для дзіцячых гульняў). *Будаўнічая п.* (месца, дзе робіцца пабудова чаго-н.). *Пасадачная п.* **2.** Роўная вольная прастора ў збудаванні паміж двума лесвічнымі маршамі. *Лесвічная п.* **3.** У вагонах: месца каля ўваходу і выхаду. *Задняя п. трамвая.* **4.** Тое, што і *платформа* (у 3 знач.). ‖ *прым.* **пляцо́вачны**, -ая, -ае.

**ПЛЯЧО́**, -а́, *мн.* плёчы, *Р* плячэ́й *і* плеч, *Д* плячáм, *Т* плячáмі *і* плячы́ма, *М* на плячáх, *н.* **1.** Частка тулава ад шыі да рукі. *Палажыць руку на чыё-н. плячо. Вынесці на сваіх плячах што-н.* (перан.: справіцца з якой-н. цяжкай задачай, працай, без падтрымкі). *П. ў п.* (побач, у цесным адзінстве). *З плеч далоў што-н.* (адпаў клопат, скончыліся турботы пра што-н.; разм.). *Мець галаву на плячах* (умець разбірацца ў чым-н., быць разумным). *Як гара з плячэй звалілася* (хто-н. адчуў палёгку, пазбавіўшыся ад якіх-н. клопатаў, перажыванняў; разм.). *За плячамі ў каго-н. што-н.* (таксама перан.: пра што-н., што было, мелася ў каго-н. у мінулым). *Уварвацца куды-н. на плячах адступаючага праціўніка* (непасрэдна за адступаючым праціўнікам). *З чужога пляча* (пра адзенне: якое не падыходзіць па размеры або якое раней насіў хто-н.). **2.** У анатоміі: верхняя частка рукі да локцевага сустава. **3.** *мн.* Тыльны бок тулава ад шыі да пояса, спіна. *Узваліць ношу на плечы* (абцяжарыць каго-н. справамі, клопатамі). *Павярнуцца плячамі да каго-, чаго-н.* (таксама перан.: адвярнуцца ад каго-, чаго-н.). **4.** Частка рычага ад пункта апоры да пункта прыкладання сілы (спец.). ‖ *памянш.* **плячу́к**, плечука́, *мн.*

плечукі́, плечуко́ў, *м.* (да 1 знач.; разм.). ‖ *прым.* **плечавы**, -а́я, -о́е (да 1—3 знач.). *Плечавая косць.*

**ПЛЯЧУ́К**, плечука́, *мн.* плечукі́, плечуко́ў, *м.* **1.** *гл.* плячо. **2.** Спецыяльныя падкладкі пад плечы ў адзенні.

**ПЛЯЧЫ́СТЫ**, -ая, -ае. З шырокімі моцнымі плячамі. *П. хлопец.* ‖ *наз.* **плячы́стасць**, -і, *ж.*

**ПЛЯ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). Шкляная пасудзіна для захоўвання вадкасці, бутэлька. *П. малака.* ‖ *памянш.* **пля́шачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **пля́шачны**, -ая, -ае.

**ПЛЯШЫ́ВЫ**, -ая, -ае. З плешам, аблыселы. *Пляшывая галава.* ◊ **Трапіў лысы на пляшывага** (разм., жарт.) — сышліся два роўныя. ‖ *наз.* **плышы́васць**, -і, *ж.*

**ПЛЯШЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -шы́н, *ж.* Тое, што і *лысіна.*

**ПНЕ́ЎЕ**, -я, *н., зб.* Пні.

**ПНЕЎМА**[1]**...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да пнеўматыкі, пнеўматычны, напр.: *пнеўмааўтаматыка, пнеўмавадзяны, пнеўмагазавы, пнеўмагідраўлічны, пнеўмаканструкцыя, пнеўмапомпа, пнеўмарухавік.*

**ПНЕЎМА**[2]**...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да лёгкіх, напр.: *пнеўмадыяфрагменны, пнеўмаплеўрыт, пнеўмасклероз, пнеўмафіброз, пнеўмацыроз;* 2) які мае адносіны да дыхання, да дыхальных шляхоў, напр.: *пнеўмавірусы, пнеўмаманометр.*

**ПНЕЎМАНІ́Я**, -і, *ж.* Група захворванняў, якія характарызуюцца запаленчым працэсам у тканках лёгкіх і ў канцовых разгалінаваннях бронхаў; запаленне лёгкіх.

**ПНЕЎМА́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж., зб.* Сукупнасць пнеўматычных механізмаў, прыстасаванняў.

**ПНЕЎМАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які прыводзіцца ў рух пры дапамозе сціснутага паветра. *П. молат. Пнеўматычная помпа.*

**ПНЁВЫ** *гл.* пень.

**ПНУ́ЦЦА**, пну́ся, пне́шся, пне́цца; пнёмся, пняце́ся, пну́цца; пні́ся; *незак.* Тое, што і *пяцца.*

**ПНУЦЬ**, пну, пнеш, пне; пнём, пняце́, пнуць; пні; *незак.* (разм.). Тое, што і *пяць*[2].

**ПО́БАЧ**. **1.** *прысл.* Адзін каля аднаго. *Мужчыны ішлі п.* **2.** *прыназ. з Р.* Блізка каля каго-, чаго-н., поруч з кім-, чым-н. *Ісці п. воза.* ◊ **Побач з (са)**, *прыназ. з Т* — 1) зусім блізка ля каго-, чаго-н. *Наша хата стаіць п. са школай;* 2) адначасова, разам з чым-н. *П. са складаннем слоўніка праводзілася манаграфічнае апісанне лексікі.*

**ПО́БЫТ**, -у, *М* -быце, *м.* **1.** Тое, што і *быт.* **2.** Знаходжанне, прабыванне дзе-н. *За кароткі п. у сталіцы пра многае даведаўся.* ‖ *прым.* **по́бытавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПО́ВАД**[1], -а, *М* -дзе, *мн.* павады́, -о́ў, *м.* Прывязаная да аброці вяроўка або рэмень, на якіх водзяць каня, радзей — цяля, карову. *На повадзе ў каго-н. быць* (перан., неадабр.; дзейнічаць не самастойна, па ўказцы каго-н.). ‖ *прым.* **паваднвы**, -ая, -ае.

**ПО́ВАД**[2], -у, *мн.* по́вады, -аў, *м.* Тое, што служыць асновай, зачэпкай для чаго-н. *Для жартаўніка і п. знойдзецца.*

**ПО́ВАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па прыгатаванні ежы. *Рэстаранны п.* ‖ *ж.* **павары́ха**, -і, *ДМ* -ры́се, *мн.* -і, -ры́х. ‖ *прым.* **по́варскі**, -ая, -ае.

**ПО́ВІДНУ**, *прысл.* Пакуль не сцямнела. *Заехаць п.*

**ПО́ГАЛАС**, -у, *м.* (разм.). Пагаласка, чуткі, розныя размовы. *Дайшоў і да мяне гэты п.*

**ПО́ГАЛАСКА**, -і, *ДМ* -ласцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Тое, што і *пагалоска.*

**ПО́ГАНЬ**, -і, *ж.* (разм., пагард.). **1.** Усё паганае, непрыемнае, што выклікае агіду. **2.** Пра нядобрага чалавека (людзей). *Фашысцкая п.*

**ПО́ГЛЯД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Накіраванасць зроку на каго-, што-н. *Кінуць п. на каго-, што-н.* (хутка паглядзець). *З першага погляду* або *на першы п.* (паводле першага ўражання). *Абвесці поглядам* (ацэньваючы, агледзець). **2.** Выраз вачэй. *Ласкавы п. Збянтэжаны п.* **3.** *перан.* Думка, меркаванне, пункт гледжання. *Навуковыя погляды. Падзяляць чые-н. погляды. На мой п.* (на маю думку).

**ПОД**, -а, *М* -дзе, *мн.* пады́, -о́ў, *м.* Ніжняя паверхня ў печы, а таксама (у заводскіх печах) месца, дзе нагрэвам, абпалам або плаўленнем апрацоўваюцца вырабы. ‖ *прым.* **по́давы**, -ая, -ае. *П. хлеб* (спечаны на подзе).

**ПО́ДАЎНА**, *прысл.* **1.** Даволі даўно. *Сонца п. зайшло.* **2.** Тым больш. *Калі я паспею, дык ты і п. паспееш.*

**ПО́ДБЕГАМ**, *прысл.* Не вельмі хутка, трушком (пра бег чалавека). *Пусціцца п.*

**ПО́ДБІЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -біvак, *ж.* Тое, што і *падбіўка* (у 2 знач.). *П. ў шапцы падралася.*

**ПО́ДЗВІГ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Геraічны, самаадданы ўчынак. *Ваенны п. Працоўны п.*

**ПО́ДКАЛАТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Заправа з мукі і вады для некаторых відаў стравы. ‖ *прым.* **по́дкалатачны**, -ая, -ае.

**ПО́ДКУП** *гл.* падкупіць.

**ПО́ДЛАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* подлы. **2.** Подлы ўчынак. *Зрабіць п.*

**ПО́ДЛЕТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* (спец.). Маладая птушка, якая толькі пачала вылятаць з гнязда.

**ПО́ДЛЫ**, -ая, -ае. Нізкі ў маральных адносінах, несумленны. *П. чалавек. П. ўчынак.* ‖ *наз.* **по́длaсць**, -і, *ж.*

**ПО́ДМАЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* **1.** Кавалачак сала, здору і пад., якім падмазваюць скавараду, калі пякуць бліны. **2.** *перан.* Хабар, грошы або матэрыяльныя каштоўнасці, якія даюцца службовай асобе як подкуп (разм.).

**ПО́ДПІС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* падпісаць. **2.** Надпіс пад чым-н, над чым-н. *П. пад карцінай.* **3.** Прозвішча, напісанае ўласнаручна. *Паставіць п. і дату.*

**ПО́ДПУСК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Рыбалоўная снасць у выглядзе вяроўкі з кручкамі і грузілам, якая апускаецца пад лёд. *Лавіць на п.* ‖ *прым.* **падпускны́**, -а́я, -о́е.

**ПО́ДСКАКАМ**, *прысл.* (разм.). Падскокваючы (бегчы, перамяшчацца). *Пабегчы п.*

**ПО́ДСТУП**, -у, *м.* **1.** *гл.* падступіць. **2.** звычайна *мн.* -ы, -аў. Месца, шлях для падыходу, прыбліжэння да чаго-н. *Баі ішлі на подступах да горада.*

**ПО́ДСЦІЛ**, -у, *м.* **1.** *гл.* падаслаць[2]. **2.** Тое, што падаслана. *Салома на п.*

**ПО́ДЫУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Узвышэнне для натуршчыка, манекеншчыкаў.

**ПО́ДЫХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Лёгкі рух паветра. *П. ветру. П. ранняй восені* (перан.: набліжэнне).

**ПО́ЕДАМ**, *прысл.* У выразе: **поедам есці** *каго* (разм.) — бесперастанку дапякаць папрокамі, лаянкай.

**ПО́ЕЗД**, -а, *М* -дзе, *мн.* паязды́, паяздо́ў, *м.* **1.** Тое, што і *цягнік.* *Прыгарадны п. Таварны п.* **2.** Шэраг павозак, якія едуць адна за адной. *Санны п. Вясельны п.* (у народным вясельным абрадзе). ‖ *прым.* **паязны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**ПО́ЖНЯ**, -і, *мн.* -і, -жань, *ж.* (абл.). Зжатае хлебнае поле або сенажаць. ‖ *прым.* **по́жневы**, -ая, -ае.

**ПО́ЗА**, -ы, *м.* -ы, поз, *ж.* **1.** Пастава цела. *Ляжаць у нязручнай позе.* **2.** *перан.* Прытворства, няшчырыя паводзіны, рысоўка. *Не верце яму, гэта толькі п.*

**ПО́ЗВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Пісьмовае паведамленне аб выкліку куды-н., павестка. *П. ў суд.*

**ПО́ЗІРК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Накіраванасць зроку на каго-, што-н. *Кінуць п.* ◊ **З першага позірку** — па першым ўражанні.

**ПО́ЗНА**, пазне́й, *прысл.* **1.** Пад канец або пасля якога-н. часу. *Вярнуўся п. ўночы.* **2.** Не ў тэрмін, пасля ўстаноўленага ці патрэбнага часу. *Заявы падаваць ужо п.*

**ПОЗНА...** (а таксама **пазна...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) позні (у 1 знач.), напр.: *познаантычны, познарэнесансны; позналеднікове* (перыяд); 2) позні (у 3 знач.), напр., *познавыспяваючы.*

**ПО́ЗНІ**, -яя, -яе. **1.** Пра час дня, года, перыяд развіцця чаго-н.: які набліжаецца да свайго канца, ужо праходзіць. *П. вечар. Позняя восень.* **2.** Які затрымаўся з наступленнем, запознены. *П. прыход. Сёлета вясна позняя. Позняе раскаянне.* **3.** Які паяўляецца пасля ўсіх іншых. *Познія кветкі. Познія гатункі яблыкаў.*

**ПО́ЗЫЎ**, -зыву, *мн.* -зывы, -зываў, *м.* Адчуванне якой-н. фізіялагічнай патрэбы. *П. на рвоту.*

**ПО́ЙЛА**, -а, *н.* Пiццё для жывёлы. *П. для цялят.*

**ПО́ЙМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Частка рачной даліны, якая затапляецца ў час разліву. ‖ *прым.* **по́йменны**, -ая, -ае. *П. луг.*

**ПО́ЙНТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *мн.* Парода караткашэрсных вялікіх паляўнічых сабак.

**ПО́КАТАМ**, *прысл.* **1.** Пра ляжачых: адзін каля аднаго, без асобага парадку. *Спаць п. на падлозе.* **2.** Коцячы (рухаць, перамяшчаць і пад.). *Грузіць бярвенне п.*

**ПО́КАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* (разм.). Лопацца, распускацца. *Покаюцца пупышкі на дрэвах.*

**ПО́КЕР**, -а, *м.* Від азартнай гульні ў карты. ‖ *прым.* **по́керны**, -ая, -ае.

**ПО́КЛАД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Яйцо або прадмет, падобны на яго, які кладуць там, дзе хочуць, каб несліся куры.

**ПО́КЛІЧ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кліч, вокліч. *Здалёк даносіўся п. аб дапамозе.*

**ПО́КРЫВА**, -а, *н.* **1.** Верхні слой, які пакрывае што-н. *Травяное п. Валасяное п.* **2.** *перан.* Тое, што пакрывае, ахутвае сабой што-н. *Пад покрывам ночы.* ‖ *прым.* **по́крыўны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**ПО́КРЫК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Характэрны крык (жывёл, птушак). *П. савы.*

**ПО́КРЫЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -рывак, *ж.* Кавалак матэрыялу для пакрывання чаго-н. *Цыратовая п.*

**ПО́КУЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Ганаровае месца ў хаце за сталом пад абразамі. *Першы сноп жыта ставяць на п.*

**ПОЛ**[1], -а, *м.* Палаткі, нары ў сялянскай хаце.

**ПОЛ**[2], -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кожны з двух генетычна і фізіялагічна супрацьпастаўленых разрадаў жывых істот (мужчын і жанчын, самцоў і самак). *Мужчынскі п. Прыгожы* або *слабы п.* (жанчыны; жарт.). ‖ *прым.* **палавы́**, -а́я, -о́е. *Палавая спеласць.*

**ПО́ЛА**, *нескл.*, *н.* Спартыўная камандная гульня з драўляным мячом і клюшкамі верхам на спецыяльна выезджаных конях. *Коннае п.* ○ **Воднае пола** — спартыўная камандная гульня ў мяч на вадзе, а таксама адпаведны від спорту.

**ПО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Заслона, якая закрывае ложак, а таксама любая заслона. *Завесіць полагам калыску. П. хмар* (перан.).

**ПО́ЛАЗ**[1], -а, *мн.* палазы́, палазо́ў, *м.* Гладкі, коўзкі, загнуты спераду брус, пласціна. *Санныя палазы.*

**ПО́ЛАЗ**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Неядавітая змяя сямейства вужоў.

**ПО́ЛАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* У жывёльным арганізме: прастора, парожняя або запоўненая чым-н., абмежаваная ўнутранымі паверхнямі сценак цела. *Брушная п.* ‖ *прым.* **по́ласцевы**, -ая, -ае.

**ПО́ЛАЎЦЫ**, -аў, *адз.* по́лавец, -лаўца, *м.* Група плямён цюркскага паходжання, якія качавалі на паўднёвым усходзе Еўропы ў 11 — пач. 13 ст. ‖ *ж.* **палаўча́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ПО́ЛБА**, -ы, *ж.* Асобны від пшаніцы з ломкім коласам. ‖ *прым.* **по́лбенны**, -ая, -ае. *Полбенная каша.*

**ПО́ЛЕ**, -я, *мн.* палі́ і (*з ліч. 2, 3, 4*) по́лі, палёў, *н.* **1.** Бязлесная раўніна. *Гуляць па полі.* **2.** Засеяны або падрыхтаваны да пасеву ўчастак зямлі. *Кукурузнае п. Рыхтаваць п. пад бульбу.* **3.** Вялікая роўная пляцоўка, спецыяльна абсталяваная, прызначаная для чаго-н. *Футбольнае п.* **4.** Работа, даследчая дзейнасць у прыродных умовах (спец.). *Геолагі летам у полі.* **5.** Прастора дзеяння якіх-н. сіл (спец.). *Магнітнае п. Сілавое п.* **6.** *перан., чаго* і *для чаго.* Галіна, сфера дзейнасці, ніва. *Вялікае п. дзейнасці.* **7.** Асноўны колер, фон пад узорам. *Паркаль у белы гарошак на чырвоным полі.* **8.** звычайна *мн.* Чыстая палоса ўздоўж краю ліста ў кнізе, сшытку і пад. *Паметкі на палях сшытка.* **9.** звычайна *мн.* Шырокі бераг капелюша. *Капялюш з загнутымі палямі.* ◊ **Поле бітвы** (высок.) — месца, дзе адбываецца бой. **Поле зроку** — прастора, якую бачыць вока. ‖ *прым.* **палявы́**, -а́я, -о́е (да 1—5 знач.). *Палявыя далі. П. ігрок. Палявая практыка. Выплаціць палявыя* (наз.).

**ПОЛІ...** (а таксама **палі...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. многа, са многім, складаны па саставе, напр.: *поліартрыт, поліфанія, полівітаміны.*

**ПО́ЛІВА**, -а, *н.* **1.** *гл.* палоць. **2.** Тое, што трэба прапалоць або што прапалата. *У агародзе яшчэ многа поліва.* ‖ *прым.* **по́ліўны**, -ая, -ае.

**ПО́ЛІС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Дакумент аб страхаванні. *Страхавы п.* ‖ *прым.* **по́лісавы**, -ая, -ае.

**ПОЛІСЕМІ́Я**, -і, *ж.* У мовазнаўстве: наяўнасць у аднаго слова некалькіх значэнняў; мнагазначнасць. ‖ *прым.* **полісемі́чны**, -ая, -ае.

**ПОЛІТЭІ́ЗМ**, -у, *м.* (спец.). Рэлігія, якая прызнае існаванне многіх багоў; мнагабожжа; *проціл.* монатэізм. ‖ *прым.* **політэісты́чны**, -ая, -ае.

**ПОЛІТЭХНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да розных галін тэхнікі. *П. інстытут.* **2.** Заснаваны на рознабаковым знаёмстве з тэхнікай. *Політэхнічнае навучанне.*

**ПО́ЛІЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -лівак, *ж.* **1.** Вадкая страва з мучной прыправай. *Частавалі яго поліўкай.* **2.** Рэдкая частка якой-н. ежы, жыжка. *Наліла адной поліўкі.* ‖ *прым.* **по́лівачны**, -ая, -ае.

**ПОЛІЭТЫЛЕ́Н**, -у, *м.* Сінтэтычны палімер на аснове этылену. ‖ *прым.* **поліэтыле́навы**, -ая, -ае. *Поліэтыленавая вытворчасць. П. настольнік.*

**ПОЛІЯМІЭЛІ́Т**, -у, *М* -ліце, *м.* Вострае віруснае захворванне пераважна дзяцей. Суправаджаецца паражэннем нервовай сістэмы, часта з паралічам. ‖ *прым.* **поліяміэлі́тны**, -ая, -ае.

**ПОЛК**, палка́, *мн.* палкі́, палко́ў, *м.* **1.** Вайсковая адзінка, якая звычайна ўваходзіць у склад дывізіі або брыгады. *Гвардзейскі п. Авіяцыйны п.* **2.** *перан., каго (чаго).* Мноства, натоўп (разм.). *П. памочнікаў.* ◊ **У нашым палку прыбыло** (разм.) — нас стала больш. ‖ *прым.* **палкавы́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**ПО́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Кавалак тканіны ва ўсю першапачатковую шырыню. *Спадніца з трох полак.* **2.** Лаўка ў вагоне для сядзення ці ляжання. *Верхняя п.* ‖ *прым.* **по́лачны**, -ая, -ае.

**ПО́ЛУДЗЕНЬ**, -дня, *мн.* -дні, -дняў, *м.* **1.** Тое, што і *абед* (у 2 знач.). *Узяць торбачку з полуднем.* **2.** Сярэдзіна дня, поўдзень. *Ужо мінула за п.* **3.** Лёгкая яда паміж абедам і вячэрай, падвячорак. *П. — у пяць гадзін.* ‖ *прым.* **по́лудзенны**, -ая, -ае.

**ПО́ЛЧЫШЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Вельмі вялікае варожае войска (кніжн.). *Варожыя полчышчы.* **2.** *перан.* Пра вялікую колькасць каго-н. (разм.). *Полчышчы камароў.*

**ПО́ЛЫ**, -ая, -ае. Пусты ўнутры. *Полае сцябло.*

**ПО́ЛЫМЯ**, -я, *н.* Агонь, які ўзнімаецца над тым, што гарыць. *Языкі полымя. П. партызанскай барацьбы* (перан., высок.: уздым.). ‖ *прым.* **по́лымны**, -ая, -ае.

**ПО́ЛЬКА**[1], -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* Танец у хуткім тэмпе з падскокамі, а таксама музыка да яго.

**ПО́ЛЬКА**[2], -і, *ДМ* -льцы, *ж.* Род мужчынскай стрыжкі, пры якой падстрыгаюцца валасы на скронях і патыліцы.

**ПО́ЛЬКА**[3] *гл.* палякі.

**ПО́ЛЬСКІ** *гл.* палякі.

**ПО́ЛЮС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адзін з двух пунктаў перасячэння ўяўнай восі вярчэння Зямлі з зямной паверхняй, а таксама мясцовасць вакол гэтых пунктаў. *Паўночны п.* **2.** Адзін з двух супрацьлеглых канцоў электрычнага ланцуга або магніта (спец.). *Дадатны, адмоўны п.* **3.** *перан.* Што-н. зусім супрацьлеглае чаму-н. іншаму (кніжн.). *Гэтыя характары — два полюсы.* ○ **Полюсы свету** (спец.) — пункты перасячэння нябеснай сферы т.зв. воссю свету, вакол якой адбываецца сутачнае вярчэнне гэтай сферы. *Паўночны і Паўднёвы полюсы свету.* **Полюсы холаду** (спец.) — вобласці найбольш нізкіх зімовых тэмператур на зямной паверхні. **Магнітныя полюсы Зямлі** (спец.) — пункты на зямной паверхні, у якіх магнітная стрэлка з гарызантальнай воссю вярчэння прымае вертыкальнае становішча. ‖ *прым.* **полюсны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *П. ток.*

**ПО́МАЧ**, -ы, *Т* -ччу, *ж.* Дапамога, падмога. *Ад дзяцей маю добрую п.*

**ПО́МЕЖ. 1.** *прысл.* Поруч, побач. *Ісці п.* **2.** *прыназ. з Т* (у спалуч. з прыназ. «з»). Поруч, побач з кім-, чым-н. *Стаяць п. з бацькам.*

**ПО́МЕСЬ**, -і, *ж.* **1.** Жывёліна або расліна, атрыманая ад скрыжавання розных парод, гатункаў. *Мул — п. асла з кабылай.*

2. *перан.* Мешаніна, сумесь чаго-н. разнароднага. *П. натуралізму з пошласцю.*

**ПО́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Скульптурнае або архітэктурнае збудаванне ў знак ушанавання памяці каго-, чаго-н. *П. Максіму Багдановічу.* **2.** Прадмет культуры мінулага. *Археалагічны п. Помнікі пісьменнасці* (старажытныя рукапісы).

**ПО́МНІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *незак.* **1.** Захоўвацца, утрымлівацца ў памяці, не забывацца. *Мне помняцца тыя дні.* **2.** *у знач. пабочн. сл.* **по́мніцца** (у 3 ас. адз.). Як у памяці. *Помніцца, вы тады прыходзілі да нас.*

**ПО́МНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., каго-што, пра каго-што, аб кім-чым і з дадан. сказам.* Трымаць у памяці, не забываць. *П. сваё маленства. П. верш на памяць. П. пра сяброў. П. аб сваіх абавязках.* ◊ **Не помніць сябе** *ад чаго* — будучы ўсхваляваным, не кантраляваць сваіх дзеянняў, учынкаў. *Не п. сябе ад шчасця.*

**ПО́МПА**[1], -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Прыстасаванне, якім пампуюць вадкасць, газ; насос. *Пажарная п.* ‖ *прым.* **по́мпавы**, -ая, -ае. *Помпавая станцыя.*

**ПО́МПА**[2], -ы, *ж.* (кніжн.). Непраўдзівая, паказная пышнасць. *Рабіць што-н. з помпай.*

**ПО́МСЛІВЫ**, -ая, -ае. Схільны да помсты. *П. чалавек.* ‖ *наз.* **по́мслівасць**, -і, *ж.*

**ПО́МСТА**, -ы, *ДМ* -сце, *ж.* Адплата за прычыненае зло, жаданне адпомсціць. *Прага помсты.*

**ПО́МСЦІЦЬ**, -мшчу, -мсціш, -мсціць; *незак., каму.* Чыніць помсту каму-н. *П. ворагу.* ‖ *зак.* **адпо́мсціць**, -мшчу, -мсціш, -мсціць; -мшчаны.

**ПО́НАЖ** *гл.* панажы.

**ПО́НАЧЫ**, *прысл.* Ноччу. *Хадзіць п.*

**ПО́НІ**, *нескл., м.* Конь штучна выведзенай нізкарослай пароды. *Катацца на п.*

**ПО́НЧА** *нескл., н.* Кароткі суцэльны плашч з прамавугольнага кавалка тканіны або вязаны, які надзяваецца цераз галаву.

**ПО́НЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Круглы, смажаны ў тлушчы піражок. ‖ *прым.* **по́нчыкавы**, -ая, -ае.

**ПОП**[1], папа́, *мн.* папы́, папо́ў, *м.* (разм.). Праваслаўны святар. ‖ *прым.* **папо́ўскі**, -ая, -ае.

**ПОП**[2], папа́, *м.* У гульні ў гарадкі: вертыкальна пастаўлены гарадок. ◊ **На папа** (разм.) — вертыкальна. *Паставіць бочку на папа.*

**ПОП-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да поп-арту, да поп-музыкі, напр.: *поп-мода, поп-музыка, поп-дыскі, поп-канцэрт, поп-ансамбль, поп-група, поп-зорка, поп-танцы.*

**ПОП-А́РТ**, -у, *М* -рце, *м.* Мадэрнісцкі кірунак у мастацтве, які выкарыстоўвае на папулярнасць і выкарыстоўвае ў жывапісе і скульптуры элементы тэхнікі, рэкламы, муляжу, адвольныя камбінацыі некаторых прадметаў побыту.

**ПО́ПЕЛ**, -у, *м.* Пылападобная шэрая маса, якая застаецца ад згарання чаго-н. *Выбіць п. з люлькі.Ператварыцца ў п.* ‖ *прым.* **по́пельны**, -ая, -ае. *П. колер* (светла-шэры).

**ПОПЕЛАПА́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Выпадзенне попелу пры вывяржэнні вулкана.

**ПО́ПЕЛЬНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Спецыяльная пасудзіна для акуркаў і страсання попелу пры курэнні.

**ПО́ПЛАЎ**, -лаву, *мн.* паплавы́, паплаво́ў, *м.* Луг у пойме ракі. *Касіць п.* ‖ *памянш.* **паплаво́к**, -лаўка́, -лаўкі́, -лаўко́ў, *м.* ‖ *прым.* **паплаўны́**, -а́я, -о́е.

**ПО́ПЛЕЧ**, *прысл.* У непасрэднай блізкасці з кім-н., плячо ў плячо, поруч. *Ісці п.*

**ПОП-МАСТА́ЦТВА**, -а, *н.* Тое, што і *поп-арт.*

**ПОП-МУ́ЗЫКА**, -і, *ДМ* -зыцы, *ж.* Сучасная папулярная музыка, якая сумяшчае стэрэатыпы розных стыляў і жанраў.

**ПО́ПРАДКІ**, -дак (разм.). Вячоркі, на якіх прадуць.

**ПО́ПЫТ**, -у, *М* -пыце, *м.* Патрабаванне на тавар, рабочую сілу; патрэба, неабходнасць у кім-, чым-н. *П. на кнігі. П. выклікае прапанову.*

**ПО́РА**, -ы, *мн.* -ы, пор, *ж.* **1.** Вельмі дробная адтуліна потавай залозы на скуры. **2.** Вельмі дробная шчыліна, прамежак паміж часцінкамі рэчыва. *Поры ў метале.*

**ПО́РАХ**, -у, *м.* **1.** Выбуховае рэчыва для выбару зарадаў агнястрэльнай зброі. *Бяздымны п. Трымаць п. сухім* (таксама перан.: быць заўсёды гатовым да абароны). *Пахне порахам* (перан.: набліжаецца вайна). *Пораху не выдумае* (перан.: пра недалёкага чалавека; разм.). **2.** *перан.* Пра запальчывага ці вельмі жвавага чалавека (разм.). *Такі нецярплівы чалавек, словам — п.* ◊ **Бочка з порахам** — пра неадступную пагрозу, вялікую небяспеку. **Не нюхаць пораху** (разм.) — не быць у баях. **Не хапае пораху** (разм.) — недастатковa сіл, настойлівасці для чаго-н. **Порах дарэмна траціць** (разм.) — дзейнічаць або гаварыць упустую. ‖ *прым.* **парахавы́**, -а́я, -о́е.

**ПО́РКА** *гл.* пароць[2].

**ПО́РКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). **1.** Корпацца, капацца ў чым-н. *П. ў рэчах.* **2.** Займацца чым-н. карпатлівым, марудным, а таксама рабіць што-н. марудна. *П. з апаратурай.* ‖ *наз.* **по́рканне**, -я, *н.*

**ПО́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што* (разм.). Тыкаць, пароць. *П. палкай у зямлю.* ‖ *аднакр.* **паркану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **по́рканне**, -я, *н.*

**ПО́РСТКІ**, -ая, -ае (разм.). Хуткі, жвавы, запальчывы, быстры. *Даволі п. для свайго ўзросту чалавек. Адзін брат спакойны, разважлівы, а другі п., гарачы.* ‖ *наз.* **по́рсткасць**, -і, *ж.*

**ПОРТ**[1], -а, *М* -рце, *мн.* парты́, -о́ў, *м.* Месца з засцярожанай воднай прасторай, спецыяльна абсталяванае для стаянкі, пагрузкі, разгрузкі і рамонту суднаў, а таксама прыморскі горад з такім спецыяльна прыстасаваным месцам. *Рачны п. Гандлёвы п.* ○ **Паветраны порт** — тое, што і *аэрапорт.* ‖ *прым.* **парто́вы**, -ая, -ае.

**ПОРТ**[2], -у, *м.* Льняная або баваўняная тканіна. *Кашуля з порту.*

**ПО́РТКІ**, -так (разм.). Тое, што і *штаны.* ‖ *памянш.* **по́ртачкі**, -чак (разм.). *Цесненькія п.* ‖ *прым.* **парто́чны**, -ая, -ае.

**ПО́РТАР**, -у, *м.* Гатунак моцнага і гаркаватага чорнага піва. ‖ *прым.* **по́ртарны**, -ая, -ае.

**ПО́РУЧ**, *прысл.* **1.** Побач, поплеч. *Мы ішлі п.* **2.** Недалёка, паблізу. *На траве сядзелі людзі, а вазы стаялі п.*

**ПО́РУЧАНЬ**, -чня, звычайна *мн.* -чні, -чняў, *м.* **1.** На трапах, на лесвіцах, на бартах суднаў, пры дзвярах вагонаў — прут, брусок, рэмень, за які трымаюцца рукой пры спуску, пад'ёме. *Трымацца за п.* **2.** Апора для рук у крэсле, калясцы і пад. *Крэсла з поручнямі.*

**ПО́РХАЎКА**, -і, *ДМ* -хаўцы, *мн.* -і, -хавак, *ж.* Шарападобны грыб, мякаць якога пры высыханні ператвараецца ў цёмны пыл. *Забялеліся ўзлескі ад порхавак.*

**ПО́РЦІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Крытая галерэя з калонамі, якая прылягае да вялікага будынка. *Грэчаскі п.*

**ПО́РЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Пэўная доля, колькасць чаго-н. (пераважна пра ежу). **2.** Ежа, разлічаная на аднаго едака ў сталовай ці рэстаране. *П. мачанкі.*

**ПО́РШАНЬ**, -шня, *мн.* -шні, -шняў, *м.* Рухомая дэталь, падоўжаная ці ў форме дыска, якая шчыльна рухаецца ўнутры цыліндра і нагнятае або выпампоўвае вадкасць, газ, пару. ‖ *прым.* **по́ршневы**, -ая, -ае.

**ПО́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Які мае многа пор. *Порыстая скура.* ‖ *наз.* **по́рыстасць**, -і, *ж.*

**ПО́САХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Доўгі кій, на які апіраюцца пры хадзьбе; таксама жазло ў вышэйшых свяшчэннаслужыцеляў.

**ПО́СВІСТ**, -у, *М* -сце, *м.* Асобая манера свістаць, свіст. *Салаўіны п.*

**ПО́СЕДАМ**, *прысл.* У выразе: **поседам сядзець** (разм.) — сядзець не ўстаючы ці знаходзіцца дзе-н., нікуды не выходзячы, не выязджаючы.

**ПО́СКУДЗЬ**, -і, *ж.* (разм., пагард.). Пра каго-н. агіднага, паскуднага або пра што-н. агіднае, паскуднае. *Не чалавек, а п.*

**ПО́СЛУХ**, -у, *м.* **1.** Пакорнасць, паслушэнства. *Трымаць дзяцей у послуху.* **2.** У манастырах: абавязак, ускладзены на кожнага манаха, а таксама спецыяльная работа, што прызначаецца за які-н. грэх, правіннасць. *Назначыць каму-н. п.* **3.** Чутка, пагалоска. *Пусціць па вёсцы п.*

**ПО́СНІЦА**, -ы, *ж.* (разм.). Посная ежа, нішчымніца.

**ПО́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пост[2]. **2.** Без мяса і малака, не скаромны. *Посная вячэра.* **3.** Не тлусты. *Посная свініна.* **4.** *перан.*

Хмуры, сумны (пра выраз твару, усмешку і пад.; разм., жарт.). **5.** *перан.* Пра від, знешні выгляд: прытворна сціплы, ханжаскі (разм., жарт.). *Твар п., як на маленні.* ‖ *наз.* **поснасць**, -і, *ж.* (да 2 і 5 знач.).

**ПОСПЕХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Удача ў дасягненні чаго-н. *Дабіцца поспеху. З тым жа поспехам.* (перан.: з такім жа вынікам). **2.** Агульнае прызнанне. *Кніга мае п.* **3.** *мн.* Добрыя вынікі ў рабоце, вучобе і пад. *Сын робіць поспехі па фізіцы. Як вашы поспехі?* (як справы?; разм.). ◊ **З поспехам** — лёгка, паспяхова, без цяжкасцей. *Тут можна з поспехам прымяніць гэты метад.*

**ПОСТ**[1], паста́, *мн.* пасты́, пасто́ў, *м.* **1.** Асоба або група людзей, якія вядуць назіранне за чым-н. або ахоўваюць што-н. *Міліцэйскі п.* **2.** Месца, пункт, адкуль вядзецца назіранне, дзе знаходзіцца ахова. *Баявы п. Памерці на пасту* (перан.: пры выкананні абавязкаў). **3.** Адказная пасада. *Заняць высокі п.* **4.** Месца, у якім сканцэнтравана кіраванне рознымі тэхнічнымі сродкамі, сігналамі. *Цэнтральны п.* ‖ *прым.* **паставы́**, -а́я, -о́е (да 1, 2 і 4 знач.). *Паставая будка. Паставая служба. Паставая ведамасць* (службовы дакумент каравула).

**ПОСТ**[2], -у, *М* -сце, *мн.* пасты́, пасто́ў, *м.* Устрыманне ад скаромнай ежы, згодна з царкоўным патрабаваннем, а таксама перыяд такога ўстрымання. *Вялікі п.* ‖ *прым.* **посны**, -ая, -ае. *Посныя дні.*

**ПОСТ...**, *прыстаўка.* Утварае прыметнікі і назоўнікі са знач. надыходу, працякання чаго-н. пасля чаго-н., услед за чым-н., напр.: *постінфекцыйны, пострадыяцыйны, постсавецкі, постпазіцыя, посттаталітарызм.*

**ПОСТАЦЬ**[1], -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Стан, фігура. *Жаночая п. Стройная п. Значная п. у палітычным жыцці краіны* (перан.).

**ПОСТАЦЬ**[2], -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Палоска збажыны, занятая адной жняёй у час жніва. *Дажаць сваю п.*

**ПОСТРАХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Пагроза, строгае папярэджанне або пакаранне як мера засцярогі ад магчымых правіннасцей у будучым. *Сварыцца на сына для постраху.*

**ПОСТРЫГ**, -у, *м.* Царкоўны абрад прыняцця манаства, які суправаджаецца падстрыганнем валасоў. *Прыняць п.*

**ПОСТУП**, -у, *м.* **1.** Паходка, манера ступаць. *Мерны п.* **2.** *перан.* Рух, ход развіцця (высок.). *Пераможны п.*

**ПОСТФІКС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У граматыцы: словаўтваральная марфема, якая ідзе за канчаткам (напр., *-цца, -це, -сьці, -небудзь*).

**ПОСУД**, -у, *М* -дзе, *м., зб.* Гаспадарчае начынне для ежы, пітва, захавання прыпасаў. *Шафа з посудам.*

**ПОСУХУ**, *прысл.* (разм.). Сухім шляхам, па сухім месцы. *Ісці п.*

**ПОСЦІЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Лёгкая саматканая коўдра або прасціна, якую рассцілаюць на пасцель, якой засцілаюць ложак, або кавалак тканіны, якой накрываецца ці завешваецца што-н. *Ткаць посцілкі. Завесіць ложак посцілкай. Снежная п.* (перан.).

**ПОТ**, -у, *М* по́це, *мн.* паты́, пато́ў, *м.* Вадкасць, якая выдзяляецца падскурнымі залозамі. *Працаваць да поту. Гэта справа патрабуе нямала поту* (перан.: працяглай, напружанай працы). *Да сёмага поту* (да знямогі; разм.). *Потам і крывёю здабыць што-н.* (перан.: шляхам вялікіх намаганняў; высок.). *Увагнаць у п. каго-н.* (змардаваць напружанай працай; разм.). *Шыбы пакрыліся потам* (перан.: запацелі). ‖ *прым.* **потавы**, -ая, -ае. *Потавыя залозы.*

**ПОТАРЧ**, *прысл.* **1.** Старчаком, у вертыкальным становішчы. *Бервяно стала п.* **2.** Тарчма, тварам уніз. *Ляцець п.*

**ПОТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Лямец пад сядлом ці падсядзёлкам. ‖ *прым.* **потнікавы**, -ая, -ае.

**ПОТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пакрыты потам. *П. твар.* **2.** Тое, што і *запацелы. Потныя шыбы.*

**ПОТЫМ**, *прысл.* Праз некаторы час, пасля; услед за кім-, чым-н. *Ідзіце вы, а я п. прыйду. На п. пакінуць* (адкласці і пад.) *што-н.* (каб зрабіць пасля, пазней; разм.).

**ПОТЫРЧ**, *прысл.* Тое, што і *потарч.*

**ПОЎДЗЕНЬ**[1], -дня, *м.* **1.** Адзін з чатырох напрамкаў свету, супрацьлеглы поўначы. *Вецер з поўдня. Вокны выходзяць на п.* **2.** Мясцовасць, размешчаная ў гэтым напрамку. *На поўдні Беларусі.* **3.** Мясцовасць з цёплым, гарачым кліматам, цёплыя краі. *Жыхары поўдня. Адпачываць на поўдні.* ‖ *прым.* **паўднёвы**, -ая, -ае. *П. полюс. П. тэмперамент* (уласцівы жыхарам поўдня).

**ПОЎДЗЕНЬ**[2], -дня, *м.* Сярэдзіна дня, час вышэйшага сонцастаяння над гарызонтам, які адпавядае 12 гадзінам дня. *Спякотны п.* ‖ *прым.* **паўдзённы**, -ая, -ае *і* **паўднёвы**, -ая, -ае.

**ПОЎЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *паўзці* (у 1 і 2 знач.), але абазначае дзеянне, якое адбываецца не ў адзін час, не за адзін прыём ці не ў адным напрамку. *П. па траве. П. перад кім-н.* (перан.: прыніжацца). ‖ *наз.* **поўзанне**, -я, *н.*

**ПОЎНА...** (а таксама **паўна...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) поўнасцю, напр., *поўнаўладны;* 2) які мае паўнату чаго-н., напр., *поўнагабарытны.*

**ПОЎНАГАЛОССЕ**, -я, *н.* У мовазнаўстве: наяўнасць у словах усходнеславянскіх моў у адрозненне ад іншых славянскіх моў спалучэнняў *оро, оло, ере, еле* паміж зычнымі, якія адпавядаюць стараславянскім *ра, ла, ре, ле,* напр.: рус. *город,* бел. *горад,* балгарскае *град,* чэшскае *hrad.* ‖ *прым.* **поўнагало́сны**, -ая, -ае.

**ПОЎНАМЕТРАЖНЫ**, -ая, -ае. Пра фільмы: звычайны, дастатковы па метражы для паказу аднаго сеанса нармальнай працягласці; *проціл.* кароткаметражны.

**ПОЎНАСЦЮ**, *прысл.* Да канца, цалкам. *П. выканаць заданне. П. згодзен.*

**ПОЎНАЎЛАДНЫ**, -ая, -ае. Які мае неабмежаваную, поўную ўладу. *П. гаспадар.* ‖ *наз.* **поўнаўла́ддзе**, -я, *н.*

**ПОЎНАЧ**[1], -ы, *ж.* **1.** Адзін з чатырох напрамкаў свету, супрацьлеглы поўдню; у бок якога накіравана намагнічаная стрэлка компаса. *З поўначы дзьмуў халодны вецер.* **2.** Мясцовасць, што ляжыць у гэтым напрамку. *На поўначы Беларусі.* **3.** Мясцовасць з халодным, суровым кліматам. *Расліннасць поўначы.* ‖ *прым.* **паўно́чны**, -ая, -ае. *Паўночнае ззянне* (палярнае).

**ПОЎНАЧ**[2], -ы, *ж.* Сярэдзіна ночы, якая адпавядае 12 гадзінам ночы. *Глухая п. Было за п.* ‖ *прым.* **паўно́чны**, -ая, -ае. *П. час.*

**ПОЎНІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *незак.* Напаўняцца. *Сэрца поўніцца радасцю. Лес поўніўся птушыным спевам.*

**ПОЎНІЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іць; *незак., каго-што.* Напаўняць. *Смех поўніў залу.*

**ПОЎНЫ**, -ая, -ае; по́вен, по́ўна. **1.** *чаго і без дап.* Напоўнены чым-н. да самых берагоў, умясціў у сябе многа каго-, чаго-н. *Поўнае вядро вады. Поўная хата людзей.* **2.** *перан., чаго і чым.* Цалкам ахоплены, прасякнуты чым-н. *Вочы, поўныя спачування.* **3.** Цэльны, цалкам закончаны, вычарпальны. *Апісаць п. круг. П. збор твораў. Поўная свабода выбару. З поўным правам.* **4.** Які дасягнуў адпаведнай нормы, найвышэйшага развіцця, граніцы. *Поўных васямнаццаць гадоў. У поўным росквіце сіл. Уключыць поўную скорасць. Работа ідзе поўным ходам* (хутка, інтэнсіўна). *У поўным сэнсе слова* (у сапраўдным значэнні слова, сапраўды). *Гаварыць на п. голас* (на ўвесь голас; таксама перан.: адкрыта, не хаваючы нічога). **5.** Тоўсты, мажны. *П. мужчына. Гімнастыка для поўных* (наз.).

**ПОЎНЯ**, -і, *ж.* **1.** Фаза Месяца, калі відзён увесь яго дыск. **2.** Росквіт, паўната. *Вясна ва ўсёй поўні.*

**ПОЎСЦЬ**, -і, *ж.* Шэрсць; падшэрстак. *Увесь касцюм у поўсці.*

**ПОЎХУ**. У выразе: **даць поўху** — ударыць, даць аплявуху.

**ПОХВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Канцавы аддзел палавых праводных шляхоў у жанчыны. **2.** Ніжняя частка ліста, якая ў выглядзе трубкі ахоплівае сцябло ў некаторых раслін. **3.** Тое, што і *ножны*[1]. *Вынясць кінжал з похвы.* ‖ *прым.* **похвенны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПОЦЕМАК**, -мку, *мн.* -мкі, -мак *і* -мкаў, *м.* Цемната, адсутнасць святла, асвятлення. *Працавалі да поцемкаў.*

**ПОЦІСК** *гл.* паціснуць.

**ПОЦЯГАМ**, *прысл.* (разм.). Цягнучы па зямлі, волакам. *Валаклі лодку п.*

**ПОЧАПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* **1.** Дужка ў вядры з вяроўкі, дроту. **2.** Вяровачка або раменьчык, прывязаныя абодвума канцамі да чаго-н. (калыскі, кашолкі і пад.). *Торба з почапкай.* ‖ *прым.* **по́чапачны**, -ая, -ае *і* **по́чапкавы**, -ая, -ае.

**ПО́ЧУТ**, -у, *м.* У выразе: **і почуту няма** — нічога не чуваць (пра каго-, што-н.).

**ПО́ЧЫРК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Манера пісаць, характар абрысаў літар. *Каліграфічны п.* **2.** *перан.* Індывідуальная манера, характэрныя рысы. *Творчы п. мастака.*

**ПОЧЫРКАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Раздзел крыміналістыкі, які займаецца вывучэннем почыркаў (у 1 знач.) для вырашэння задач, што ўзнікаюць пры расследаванні і судовым разборы. ‖ *прым.* **почырказна́ўчы**, -ая, -ае.

**ПО́ШАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Хвароба, эпідэмія. *Маравая п.* (з вялікай смяротнасцю). **2.** *перан.* Напасць, насланнё. *Варожая п.*

**ПО́ШВЫРАК**, -рку, *м.* (разм.). **1.** Кідок з сілай. *Ад яго пошвырку разбягаюцца куры ва ўсе бакі.* **2.** Імклівы рух. *П. наперад.*

**ПО́ШЛАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* пошлы. **2.** *мн.* -і, -ей. Пошлы выраз, пошлы ўчынак. *Гаварыць пошласці.*

**ПО́ШЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Дзяржаўны грашовы збор для пакрыцця пэўных аперацый. *Мытныя пошліны* (на тавары, якія ўвозяцца або вывозяцца). *Транзітная п.* ‖ *прым.* **по́шлінны**, -ая, -ае. *П. збор.*

**ПО́ШЛЫ**, -ая, -ае. Нізкі ў маральных адносінах, безгустоўна-грубы. *П. анекдот.* ‖ *наз.* **по́шласць**, -і, *ж.*

**ПО́ШТА**, -ы, *ДМ* -шце, *ж.* **1.** Установа для перасылкі пісем, лёгкіх грузаў, грошай і пад., а таксама будынак, дзе яна размяшчаецца. *Работнікі пошты. Здаць бандэроль на пошту.* **2.** Перасылка, дастаўка сродкамі гэтай установы. *Паслаць пісьмо па пошце.* **3.** Тое, што дастаўлена гэтай установай (пісьмы, пасылкі). *Разносіць пошту.* **4.** Такая ж установа, якая займалася адначасова рэгулярнай перавозкай пасажыраў у конных экіпажах (гіст.). ○ **Палявая пошта** — 1) воінская фельд'егерская паштовая сувязь; 2) закадзіраванае найменне вайсковай часці. ‖ *прым.* **пашто́вы**, -ая, -ае. *Паштовая скрынка. П. вагон* (для перавозкі пошты). *Ехаць на паштовых* (у мінулым: ехаць на конях, што належалі пошце).

**ПО́ШУК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *мн.* Дзеянні таго, хто шукае, адшукванне каго-, чаго-н. *У пошуках прыстанішча.* **2.** часцей *мн.* Разведачныя работы па выяўленні чаго-н. (спец.). *Геалагічныя пошукі.* **3.** Разведка, разведвальная баявая аперацыя (спец.). *Начны п.* ‖ *прым.* **по́шукавы**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**ПО́ШЧАК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Пералівісты дрыжачы гук, трэль. *Салаўіны п.* **2.** Водгук, рэха. *Застукаў дзяцел, і пайшоў па лесе п.*

**ПО́ЯС**, -а, *мн.* паясы́, паясо́ў, *м.* **1.** Стужка, шнур, рэмень і пад., якімі падпяразваюць адзенне па таліі. *Скураны п.* **2.** *перан.* Што-н., размешчанае паласой вакол чаго-н. *Зялёны п. горада.* **3.** Паясніца, талія. *Па п. у вадзе. Кланяцца ў п.* (сагнуўшы тулава). **4.** Частка зямной паверхні паміж якімі-н. паралелямі або паміж двума мерыдыянамі, якая выдзяляецца па якой-н. прымеце. *Гарачы п. Часавы п.* **5.** Прастора, якая з'яўляецца падраздзяленнем тэрыторыі краін па якіх-н. прыметах. *Тарыфны п.* **6.** Брус, распора паміж кроквамі. **7.** Частка шкілета, якая служыць для прычлянення да тулава і апоры канечнасцей (спец.). *Плечавы п.* ‖ *памянш.* **паясо́к**, -ска́, *мн.* -скі́, -ско́ў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **паясны́**, -а́я, -о́е (да 1, 3—5 і 7 знач.). *П. рэмень. П. партрэт* (да пояса). *П. час.*

**ПРА**, *прыназ. з В.* Ужыв. пры абазначэнні прадмета размовы, думкі або пачуцця. *Пагаварыць пра адпачынак. Колькі раз я ўспамінаў пра цябе.*

**ПРА...**, *прыстаўка.* **І.** Утварае дзеясловы са знач.: 1) дзеяння, накіраванага праз што-н., напр.: *прабіць, прагрызці, працячы;* 2) дзеяння, якое распаўсюджваецца з усёй паўнатой на ўвесь прадмет, напр.: *праварыць, прагрэць, прасаліць;* 3) руху ў прасторы міма чаго-н., напр.: *прабегчы, праехаць;* 4) поўнай закончанасці, вычарпанасці дзеяння, напр.: *праспяваць, пранумараваць, прайсціся;* 5) дзеяння, якое ажыццяўляецца ў адзін прыём (пераважна пра гучанне), напр.: *прапішчаць, прамяўкаць, прабарабаніць;* 6) дзеяння, якое развіваецца ва ўсім аб'ёме на працягу якога-н. прамежку часу, напр.: *праседзець* (увесь дзень), *прахварэць, прамучыцца* (які-н. час), *праблукаць;* 7) дзеяння, у выніку якога нанесена шкода, страта, напр.: *празяваць, прагуляць, прагандлявацца.* **ІІ.** Утварае: 1) назоўнікі і прыметнікі са знач. першапачатковы, найбольш старажытны, напр.: *прарадзіма, праславянскі;* 2) прыметнікі, якія абазначаюць высокую, найвышэйшую ступень якасці, напр.: *прамудры, праславуты.* **ІІІ.** Утварае назоўнікі і прыметнікі са знач.: прыхільнік каго-, чаго-н., які дзейнічае ў чыіх-н. інтарэсах, напр.: *праімперыялістычны, прафашыст.*

**ПРААНАЛІЗАВА́ЦЬ** *гл.* аналізаваць.

**ПРААНАТАВА́ЦЬ** *гл.* анатаваць.

**ПРААНКЕТАВА́ЦЬ** *гл.* анкетаваць.

**ПРААРА́ЦЬ**, -ару́, -арэ́ш, -арэ́; -аро́м, -арацé, -ару́ць; -ары́; -ара́ны; *зак., што.* **1.** Узворваючы, прагнаць баразну, узараць прастору паміж чым-н. *П. разору.* **2.** і *без дап.* Правесці які-н. час на ворыве. *П. да абеду.* ‖ *незак.* **право́рваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **право́рванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПРААРФАВА́ЦЬ** *гл.* арфаваць.

**ПРАБА́БКА**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* Маці дзеда або бабкі.

**ПРАБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны *і* **ПРО́БАВАЦЬ**, -бую, -буеш, -буе; -буй; -баваны; *незак.* **1.** *каго-што.* Правяраць стан або якасць. *П. свае сілы.* **2.** *што.* Есці для пробы, на смак чаго-н. *П. страву.* **3.** *з інф.* Рабіць спробу чаго-н. *П. пісаць вершы.* ‖ *зак.* **папрабава́ць**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны *і* **папро́баваць**, -бую, -буеш, -буе; -буй; -баваны.

**ПРАБАДА́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак., каго-што.* Пракалоць рагамі.

**ПРАБАДА́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* і *незак., што* (спец.). Утварыць (утвараць) навылётную адтуліну ў сценцы полага органа. ‖ *наз.* **прабадзе́нне**, -я, *н. П. страўніка.* ‖ *прым.* **прабадны́**, -а́я, -о́е. *Прабадная язва.*

**ПРАБАДЗЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* (разм.). Правесці дзе-н. які-н. час марна, нічога не робячы. *Прабадзяўся недзе ўвесь дзень.*

**ПРАБАЛБАТА́ЦЦА**, -лбачу́ся, -лбо́чашся, -лбо́чацца; -лбачы́ся; *зак.* (разм.). Тое, што і *прагаварыцца. Абяцала маўчаць, а тут прабалбаталася.*

**ПРАБАЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -і́ць; *зак.* Пра адчуванне болю на працягу якога-н. часу. *Вочы прабалелі паўмесяца.*

**ПРАБАРАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* **1.** Апрацаваць бараной (узараную зямлю). **2.** Баранаваць некаторы час. *П. увесь дзень.* ‖ *незак.* **прабарано́ўваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАБА́ЦЬКА**, -і, *мн.* -і, -аў, *м.* (высок.). Тое, што і *роданачальнік; продак.*

**ПРАБАЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які заслугоўвае прабачэння. *П. ўчынак.* ‖ *наз.* **прабача́льнасць**, -і, *ж.*

**ПРАБА́ЧЛІВЫ**, -ая, -ае. Які выражае прабачэнне, просьбу або прабачэнні. *Гаварыць прабачлівым тонам.* ‖ *наз.* **праба́члівасць**, -і, *ж.*

**ПРАБА́ЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які заслугоўвае прабачэння. ‖ *наз.* **праба́чнасць**, -і, *ж.*

**ПРАБА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каму.* Тое, што і *дараваць* (у 1 знач.). *Прашу п. мне.* ‖ *незак.* **прабача́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прабачэ́нне**, -я, *н.*

**ПРАБАЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* прабачыць. **2.** *мн.* -і, -яў. Дараванне віны, паблажлівасць за правіннасць. *Прашу прабачэння.*

**ПРАБЕ́Г**, -у, *м.* **1.** Спартыўнае спаборніцтва па бегу, яздзе. *Лыжны п. Аўтамабільны п.* **2.** Адлегласць, пройдзеная якім-н. транспартным сродкам (спец.). *Сутачны п. цеплавоза.* **3.** Знаходжанне ў дарозе, у эксплуатацыі (транспартных сродкаў; спец.). *Падрыхтаваць машыну да прабегу.*

**ПРАБЕ́ГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** Правесці які-н. час у беганні. *П. паўдня.* **2.** *што.* Прапусціць за бегатнёй (разм.). *П. абед.*

**ПРАБЕ́ГЧЫ**, -бягу́, -бяжы́ш, -бяжы́ць; -бяжы́м, -бежыцé, -бягу́ць; -бе́г, -гла; -бяжы́; *зак.* **1.** Бягом прайсці міма або цераз што-н. *П. цераз поле. П. па двары.* **2.** *што.* Бягом пераадолець якую-н. адлегласць. *П. тры кіламетры.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Паказацца і хутка знікнуць, мільгануць, пранесціся. *Па твары прабегла ўсмешка.* **4.** *перан., што.* Бегла прачытаць (разм.). *П. вачамі старонку.* **5.** *чым.* Правесці (пальцамі, рукой) па чым-н. (разм.). *П. пальцамі па клавішах.* ‖ *незак.* **прабяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРАБЕ́ГЧЫСЯ**, -бягу́ся, -бяжы́шся, -бяжы́цца; -бяжы́мся, -бежыцёся, -бягу́цца; -бе́гся, -бе́глася; -бяжы́ся; *зак.* **1.** Прабегчы нямнога, каб размяцца. *Чалавек злез з саней і прабегся.* **2.** Тое, што і *прабегчы* (у 5 знач.; разм.). *П. па клавіятуры.* ‖ *наз.* **прабе́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* (да 1 знач.; спец.).

**ПРАБЕ́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Незапоўненае месца ў тэксце, прагал (паміж літарамі, словамі, радкамі). *Пакінуць п.* **2.** *перан.* Недахоп, недагляд. *П. у ведах.* ‖ *прым.* **прабе́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *П. матэрыял* (у друкарскім наборы: брусочкі для ўтварэння прамежкаў).

**ПРАБІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., што* (спец.). **1.** Вызначаць колькасць высакароднага металу ў злітках, рудах, сплавах. **2.** Ставіць пробу на вырабы з высакародных металаў. ‖ *наз.* **прабі́раванне**, -я, *н.; прым.* **прабі́рны**, -ая, -ае. *П. аналіз.*

**ПРАБІЎНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які прабівае што-н. *Прабіўная сіла снарада.* **2.** *перан.* Энергічны і настойлівы (разм.). *П. хлопец.*

**ПРАБІ́ЦЦА**, -б'ю́ся, -б'е́шся, -б'е́цца; -б'ёмся, -б'яцёся, -б'ю́цца; -бі́ся; *зак.* **1.** Прабрацца праз што-н., пераадольваючы перашкоды. *Полк прабіўся да ракі. П. праз натоўп.* **2.** Пражыць з цяжкасцю (разм.). *П. да вясны.* **3.** Пра расліны: вылезці з зямлі. *Прабілася зялёная травіца.* ‖ *незак.* **прабіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **прабіццё**, -я́, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**ПРАБІ́ЦЬ**, -б'ю́, -б'е́ш, -б'е́; -б'ём, -б'яце́, -б'ю́ць; -бі́ў, -бі́ла; -бі́; -бі́ты; *зак.* **1.** *гл.* біць. **2.** *што.* Ударамі або іншым спосабам зрабіць адтуліну, праход у чым-н. *П. адтуліну ў сцяне. П. сабе дарогу* (перан.: дасягнуць поспеху). **3.** *што.* З цяжкасцю дабіцца ажыццяўлення чаго-н. *П. праект будаўніцтва Дома культуры.* ‖ *незак.* **прабіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2 і 3 знач.). ‖ *наз.* **прабіва́нне**, -я, *н.* (да 2 і 3 знач.).

**ПРАБЛЕ́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ле́м, *ж.* **1.** Складанае пытанне, задача, якія патрабуюць вырашэння, даследавання. *Вырашыць праблему. П. землекарыстання.* **2.** *перан.* Пра што-н. цяжка вырашальнае, ажыццявімае (разм.). *Гэта для мяне не п.* (можна лёгка і проста зрабіць). ‖ *прым.* **праблемны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Праблемныя пытанні.*

**ПРАБЛЕМАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** Яшчэ недаказаны, які з'яўляецца праблемай. *Праблематычнае меркаванне.* **2.** Малапраўдападобны, няпэўны. *Праблематычная справа.* ‖ *наз.* **праблематы́чнасць**, -і, *ж.*

**ПРАБЛІСНУ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не́; *зак.* Бліснуць раптоўна праз што-н. *Праз воблакі праблі́снула сонца. Праблі́снула нейкая надзея* (перан.).

**ПРАБО́ІНА**, -ы, *мн.* -ы, -бо́ін, *ж.* Прабітае наскрозь месца, дзірка. *П. ў сцяне.*

**ПРАБО́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Металічная дужка, убітая ў дзверы вечка і пад., што служыць для навешвання замка. ‖ *прым.* **прабо́йны**, -ая, -ае.

**ПРАБО́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Ручны інструмент для прабівання невялікіх адтулін у метале, каменнай сцяне і пад.

**ПРАБО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лінія, якая ўтвараецца паміж радамі расчасаных на два бакі валасоў. *Прамы п.* (пасярэдзіне). *Касы п.* (бакавы).

**ПРАБРА́ЦЦА**, -бяру́ся, -бярэ́шся, -бярэ́цца; -бяро́мся, -берацёся, -бяру́цца; -бра́ўся, -ра́лася; -бяры́ся; *зак.* **1.** З цяжкасцю прайсці, пранікнуць. *П. праз гушчар.* **2.** Прайсці тайком, пракрасціся, пранікнуць. *П. ў хату праз акно.* ‖ *незак.* **прабіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРАБРА́ЦЬ**, -бяру́, -бярэ́ш, -бярэ́; -бяро́м, -берацé, -бяру́ць; -бра́ў, -ра́ла; -бяры́; -бра́ны; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Тое, што і *праняць. Прабраў холад. Жанчыну прабраў страх.* **2.** *перан., каго (што).* Зрабіць вымову каму-н., вылаяць. *П. свавольніка.* ‖ *незак.* **прабіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРАБРЫ́НКАЦЬ** *гл.* брынкаць.

**ПРАБРЫ́ЦЬ**, -ры́ю, -ры́еш, -ры́е; -ры́ты; *зак., што.* Выбрыць палоску паміж валасамі. ‖ *незак.* **прабрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРАБУБНІ́ЦЬ** *гл.* бубніць.

**ПРАБУДЗІ́ЦЦА**, -буджу́ся, -бу́дзішся, -бу́дзіцца; *зак.* **1.** Тое, што і *прачнуцца* (кніжн.). *П. ад сну. Прырода прабудзілася* (перан.). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Узнікнуць, з'явіцца (пра пачуцці, жаданні і пад.; высок.). ‖ *незак.* **прабуджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **прабуджэ́нне**, -я, *н.*

**ПРАБУДЗІ́ЦЬ** *гл.* будзіць.

**ПРАБУРЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *зак.* **1.** Абазвацца бурчаннем. *Сабака прабурчаў.* **2.** *што.* Сярдзіта прамармытаць. *Нешта прабурчаў сабе пад нос.* **3.** *што* і *без дап.* Бурчаць некаторы час. *П. увесь дзень.*

**ПРАБУРЫ́ЦЬ** *гл.* бурыць.

**ПРАБЫ́ЦЬ**, -бу́ду, -бу́дзеш, -бу́дзе; -бы́ў, -была́, -ло́; -бу́дзь; *зак.* Пражыць, правесці некаторы час дзе-н., у якасці каго-н., у якім-н. стане. *У гасцях мы прабылі роўна тыдзень. Месяц прабыў без работы.*

**ПРАБЯГА́ЦЬ** *гл.* прабегчы.

**ПРА́ВА**[1], -а, *мн.* правы́, право́ў, права́м, *н.* **1.** Сукупнасць устаноўленых і ахоўваемых дзяржаўнай уладай норм і правіл, што рэгулююць адносіны людзей у грамадстве, а таксама навука, якая вывучае гэтыя нормы. *Правы чалавека. Выбарчае п.* **2.** Ахоўваемая дзяржавай, узаконеная магчымасць, свабода што-н. рабіць, ажыццяўляць. *Правы і абавязкі грамадзян. П. на адукацыю. П. голасу.* **3.** Магчымасць дзейнічаць якім-н. спосабам. *П. кантролю. Мець п. на што-н.* **4.** Падстава, прычына. *Вы не маеце п. на мяне крычаць. Я гэта магу сказаць з поўным правам.* **5.** *мн.* Дакумент, які дазваляе каму-н. кіраваць аўтамабілем, матацыклам і пад. *Атрымаць вадзіцельскія правы.* ◊ **Сваё права правіць** (разм.) — настойваць на сваім. ‖ *прым.* **прававы́**, -а́я, -о́е (да 1 і 2 знач.). *Прававыя нормы.*

**ПРА́ВА**[2]. У выразе: **права руля** — каманда, якая падаецца для павароту руля ўправа.

**ПРАВА**[1]**...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач.: які мае адносіны да права[1], прававы, напр.: *правапарадак, правапарушэнне.*

**ПРАВА**[2]**...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач. правы[1], напр.: *правабярэжны, правафлангавы.*

**ПРАВАВЕ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па правазнаўстве, юрыст.

**ПРАВАВЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які строга прытрымліваецца якой-н. веры, рэлігіі, вучэння. *П. католік.* ‖ *наз.* **правaве́рнасць**, -і, *ж.*

**ПРАВАВЫ́** *гл.* права[1].

**ПРАВАДЗЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **правадзейны член** *чаго* — вучонае званне члена некаторых навуковых устаноў, акадэмій і пад. *П. член акадэміі навук.*

**ПРАВАДНІ́К**[1], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Той, хто паказвае дарогу. *Адправіцца ў дарогу з правадніком.* **2.** Чыгуначны служачы, які суправаджае вагон. *Брыгада праваднікоў.* **3.** Спецыяліст, які працуе са службовым сабакам. *П. з вышуковым сабакам.* ‖ *ж.* **праваднíца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц.

**ПРАВАДНІ́К**[2], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Рэчыва, якое добра прапускае праз сябе або перадае электрычны ток, гук, цяпло. *Вада — цудоўны п. гуку.* **2.** *перан.* Перадатчык, пасрэднік у распаўсюджванні чаго-н. *Радыё — п. інфармацыі.* ‖ *прым.* **праваднíко́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПРАВАДНЫ́** *гл.* провад.

**ПРАВАДЫ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Кіраўнік грамадскага руху, партыі. **2.** Чалавек, які стаіць на чале каго-, чаго-н., кіруе кім-, чым-н. *П. войска. П. племя.* ‖ *прым.* **правады́рскі**, -ая, -ае.

**ПРАВАЖДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). Правесці які-н. час у клопатах аб кім-, чым-н. *Цэлы дзень праваждаліся, пакуль уладкавалі турыстаў.*

**ПРАВАЗДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (афіц.). Здольны ажыццяўляць якія-н. правы і адказваць за свае ўчынкі. *Праваздольная асоба.* ‖ *наз.* **праваздо́льнасць**, -і, *ж.*

**ПРАВАЗІ́ЦЬ**, -важу́, -во́зіш, -во́зіць; *зак., каго-што.* Правесці які-н. час, возячы каго-, што-н. *Цэлы дзень правазіў дровы.*

**ПРАВАЗНА́ВЕЦ**, -на́ўца, *мн.* -на́ўцы, -на́ўцаў, *м.* Тое, што і *прававед, юрыст.*

**ПРАВАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Сукупнасць юрыдычных навук, юрыспрудэнцыя. ‖ *прым.* **правазна́ўчы**, -ая, -ае.

**ПРАВАЗНЫ́** *гл.* правезці.

**ПРАВАКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; *незак.* **1.** *каго (што) на што.* Падбухторваць на якія-н. дзеянні шляхам правакацыі (у 1 знач.). **2.** *што.* Рабіць правакацыю (у 2 знач.; спец.). ‖ *зак.* **справакава́ць**,

-кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны. || *наз.* **правакаванне**, -я, *н.*

**ПРАВАКАТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тайны агент, які дзейнічае шляхам правакацыі (у 1 знач.). *Падсадзіць правакатара.* **2.** Падбухторшчык, які дзейнічае са здрадніцкай мэтай. *П. вайны.* || *прым.* **правакатарскі**, -ая, -ае.

**ПРАВАКАЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Здрадніцкія дзеянні, падбухторванне каго-н. да такіх дзеянняў, якія могуць прывесці да цяжкіх вынікаў. *Паддацца на правакацыю.* **2.** Штучнае выкліканне якіх-н. прымет хваробы (спец.). || *прым.* **правакацыйны**, -ая, -ае.

**ПРАВАЛ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* правальцца, правальць. **2.** Месца, якое правалілася, паглыбленне. *Глыбокі п. у гарах.* **3.** *перан.* Поўная няўдача ў якой-н. справе. *П. планаў інтэрвентаў.* **4.** *перан.* Адсутнасць яснага ўспрымання ўсяго навакольнага (пры некаторых хваробах, ап'яненні). *Правалы памяці.* || *прым.* **правальны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.).

**ПРАВАЛАВОДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* (разм.). Затраціць многа часу на што-н. *П. паўдня.*

**ПРАВАЛАЧЫ**, -лаку, -лачэш, -лачэ; -лачом, -лачаце, -лакуць; -лок, -лакла, -ло; -лачы; -лочаны; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Працягнуць волакам. **2.** *што.* Зацягнуць (нітку ў вушка іголкі). || *незак.* **правалакаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАВАЛІЦЦА**, -алюся, -алішся, -аліцца; *зак.* **1.** Упасці ў якую-н. адтуліну. *П. ў яму. Гатоў скрозь зямлю п.* (хочацца знікнуць, схавацца ад сораму, страху і пад.). *Як скрозь зямлю праваліўся* (знік невядома куды). *П. мне срозь зямлю* (клятвеннае запэўненне ў праўдзівасці сваіх слоў; разм.). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Абрушыцца ад цяжару. *Столь правалілася.* **3.** *перан.* Пацярпець няўдачу (у якой-н. справе або пра якую-н. справу; разм.). *Спробы праваліліся. П. на экзамене.* **4.** *перан.* Прапасці, знікнуць (разм.). *Куды ты праваліўся на два тыдні?* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і *уваліцца*[1] (у 2 знач.). *Вочы праваліліся.* || *незак.* **правальвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. || *наз.* **правал**, -у, *м.* (да 2 і 3 знач.).

**ПРАВАЛІЦЬ**, -алю, -аліш, -аліць; -алены; *зак.* **1.** *што.* Праламаць, абрушыць. *П. падлогу.* **2.** *што.* Загубіць якую-н. справу (разм.). *П. мерапрыемства.* **3.** *каго-што.* Адхіліць, адвесці (разм.). *П. каго-н. на экзамене* (паставіць нездавальняючую ацэнку). || *незак.* **правальваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **правал**, -у, *м.*

**ПРАВАМЕРНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Унутрана апраўданы, заснаваны на праве, законамерны. *Правамерныя дзеянні.* || *наз.* **правамернасць**, -і, *ж.*

**ПРАВАМОЦНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які мае законныя правы, паўнамоцтвы. *П. сход.* || *наз.* **правамоцтва**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.*

**ПРАВАНСАЛЬ**, -ю, *м.* Соус з жаўтком з алеем і вострымі прыправамі. *Капуста п.* (кіслая капуста з алеем і прыправамі).

**ПРАВАНСКІ**, -ая, -ае. У выразе: **праванскі алей** — вышэйшы гатунак аліўкавага алею; выкарыстоўваецца і як народны лекавы сродак.

**ПРАВАПАРАДАК**, -дку, *м.* (кніжн.). Парадак грамадскіх адносін, замацаваны прававымі нормамі.

**ПРАВАПАРУШАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (афіц.). Асоба, вінаватая ў правапарушэнні, якая парушыла закон. || *ж.* **правапарушальніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПРАВАПАРУШЭННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (афіц.). Парушэнне права, законаў; злачынства. *Прафілактыка правапарушэнняў.*

**ПРАВАПІС**, -у, *м.* Агульнапрынятыя, узаконеныя правілы пісьма; арфаграфія. *П. беларускай мовы.* || *прым.* **правапісны**, -ая, -ае.

**ПРАВАРОНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак.*, *каго-што* (разм.). Прапусціць, празяваць. *Такі зручны выпадак праваронілі.*

**ПРАВАРТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; -таваны; *зак.*, *каго-што* (разм.). **1.** Не ўсцерагчы, празяваць. **2.** і *без дап.* Правесці які-н. час, вартуючы каго-, што-н. *П. усю ноч.*

**ПРАВАРЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -арыцца; *зак.* **1.** Добра зварыцца ў выніку доўгай варкі. **2.** Варыцца некаторы час. *Мяса праварылася тры гадзіны.* || *незак.* **праварвацца**, -аецца (да 1 знач.).

**ПРАВАРЫЦЬ**, -ару, -арыш, -арыць; -араны; *зак.*, *што.* **1.** Доўгай варкай давесці да поўнай гатоўнасці. *П. мяса.* **2.** Правесці які-н. час, варачы што-н. || *незак.* **праварваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАВАСКАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны; *зак.*, *што.* Нацерці воскам, правашчыць. *П. дратву.* || *незак.* **праваскоўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАВАСЛАЎЕ**, -я, *н.* Адзін з асноўных кірункаў у хрысціянстве (побач з каталіцызмам, пратэстантызмам); веравызнанне, якое склалася ў Візантыі як усходнехрысціянская царква. || *прым.* **праваслаўны**, -ая, -ае.

**ПРАВАСУДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Дзейнасць судовых органаў. *Ажыццяўляць п.* **2.** Справядлівае рашэнне справы, спрэчак. *Шукаць правасуддзя.* || *прым.* **правасудны**, -ая, -ае.

**ПРАВАТА**, -ы, *ДМ* -ваце, *ж.* Правільнасць дзеянняў і думак. *Вера ў правату сваёй справы.*

**ПРАВАФЛАНГОВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца, размешчаны на правым флангу. *П. баец. Раўняцца на правафланговых* (наз.). **2.** **правафланговы**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.*, *перан.* Чалавек, на якога патрэбна раўняцца ў працы, што служыць прыкладам для іншых.

**ПРАВАШЧЫЦЬ**, -вашчу, -вошчыш, -вошчыць; -вошчаны; *зак.*, *што.* Тое, што і *праваскаваць.* || *незак.* **правошчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАВЕДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** *каго-што.* Тое, што і *наведаць. П. сястру.* **2.** *што, аб чым, пра што* і з *дадан.* Атрымаць звесткі пра каго-, што-н. *П. аб яго здароўі* або *пра яго здароўе.* || *незак.* **праведваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАВЕДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** У вернікаў: чалавек, які жыве праведным жыццём. **2.** Чалавек, які ў сваіх дзеяннях кіруецца прынцыпамі сумленнасці, справядлівасці (іран.). У выразе: **спаць сном праведніка** (разм., жарт.) — спаць спакойна, ціха, мірна. || *ж.* **праведніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. || *прым.* **праведніцкі**, -ая, -ае.

**ПРАВЕДНЫ**, -ая, -ае. **1.** У вернікаў: набожны, бязгрэшны, які не парушае рэлігійнай маралі. *Праведнае жыццё.* **2.** Справядлівы, заснаваны на праўдзе (у 2 знач.; уст.). *П. суд.* || *наз.* **праведнасць**, -і, *ж.*

**ПРАВЕЗЦІ**, -вязу, -вязеш, -вязе; -вязём, -везяце, -вязуць; правёз, -везла; -вязі; -везены; *зак.*, *каго-што.* **1.** Везучы, даставіць. *П. бліжэйшым шляхам.* **2.** Везучы, мінаваць што-н. *П. каля Палаца мастацтваў.* **3.** Перавезці з сабой у чым-н. *П. кнігі ў чамадане. П. кантрабанду цераз граніцу.* **4.** Тое, што і *пракаціць* (у 2 знач.). *А ну, правязі мяне на машыне!* || *незак.* **правозіць**, -вожу, -возіш, -возіць. || *наз.* **правоз**, -у, *м.* (да 1 і 3 знач.). || *прым.* **правазны**, -ая, -ое (да 1 знач.; спец.). *Правазная здольнасць чыгункі. Правазная плата за багаж.*

**ПРАВЕНТЫЛЯВАЦЬ** *і* **ПРАВЕНТЫЛІРАВАЦЬ** *гл.* вентыляваць.

**ПРАВЕРШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто займаецца праверкай чаго-н. || *ж.* **правершчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПРАВЕРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.*, *каго-што.* **1.** Упэўніцца ў правільнасці чаго-н., абследаваць з мэтай нагляду, кантролю. *П. правільнасць рашэння задачы. П. білеты пры ўваходзе.* **2.** Падвергнуць выпрабаванню для высвятлення чаго-н. *П. веды навучэнцаў. П. насенне на ўсходжасць.* || *незак.* **правяраць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **праверка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.*; *прым.* **праверачны**, -ая, -ае.

**ПРАВЕС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Правіслае месца ў чым-н.

**ПРАВЕСІЦЬ**, -вешу, -весіш, -весіць; -вешаны; *зак.*, *што* (спец.). Адвесам праверыць прамізну якой-н. паверхні, лініі і пад. || *незак.* **правешваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАВЕСЦІ**, -вяду, -вядзеш, -вядзе; -вядзём, -ведзяце, -вядуць; -вёў, -вяла, -ло; -вядзі; -ведзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Памагчы прайсці куды-н., праз што-н. *П. атрад цераз балота. П. праз агароды.* **2.** *што.* Вызначыць, прачарціць. *П. граніцу.* **3.** *чым па чым.* Зрабіць рух чым-н. прыціснутым да паверхні. *П. рукой па валасах.* **4.** *што.* Пракладваючы, збудаваць, устанавіць. *П. канал. П. тэлефон.* **5.** *каго (што).* Развітваючыся, прайсці разам з кім-н. да якога-н. месца. *П. сястру на вакзал.* **6.** *каго*

*(што).* Адправіць куды-н. *П. сына ў армію. Дзяжурны па станцыі правеў апошні поезд.* **7.** *каго-што.* Паглядзець услед таму, хто або што аддаляецца. *П. каго-н. вачамі.* **8.** *што.* Дамагчыся ажыццяўлення чаго-н., увасобіць. *П. ідэю ў жыццё.* **9.** *што.* Выканаць, ажыццявіць, зрабіць (якія-н. дзеянні, работу). *П. ўборку ўраджаю. П. рэпетыцыю.* **10.** *каго-што.* Тое, што і *аформіць* (у 2 знач.; спец.). *П. рахункі па касавай кнізе.* **11.** *што.* Пражыць, прабыць які-н. час дзе-н. або якім-н. спосабам. *П. некалькі гадоў у ссылцы. Весела п. свята.* **12.** *каго (што).* Ашукаць, перахітрыць (разм.). *Гэтага чалавека цяжка п.* ‖ *незак.* **право́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **правядзе́нне**, -я, *н.* (да 1—4, 8—10 знач.), **право́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 знач.), **право́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 1, 4 і 10 знач.; спец.) *і* **право́дзіны**, -дзін (да 5 і 6 знач.). *Правод* або *праводка суднаў цераз канал. Праводка лініі. Праводка рахункаў.*

**ПРАВЕ́ТРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ачысціцца ад дрэннага паветра прытокам свежага; прасушыцца на ветры. *Пакой добра праветрыўся. Зерне праветрылася.* **2.** Асвяжыцца, пабыць на свежым паветры. **3.** *перан.* Развеяцца, набрацца новых уражанняў, заняцца чым-н. дзеля адпачынку, забавы (разм.). *Трэба паехаць у падарожжа, каб п.* ‖ *незак.* **праве́трывацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **праве́трыванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПРАВЕ́ТРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* **1.** Асвяжыць прытокам свежага паветра. *П. хату.* **2.** Пад уздзеяннем паветра ачысціць, засцерагчы ад псавання. *П. зімовае адзенне.* ‖ *незак.* **праве́трываць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **праве́трыванне**, -я, *н.*

**ПРАВЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Рабіцца больш правым, кансерватыўным у палітычных адносінах. ‖ *зак.* **паправе́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**ПРАВЕ́ЯЦЬ** *гл.* веяць.

**ПРАВІ́ДЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (спец.). **1.** Лінейка для праверкі правільнасці каменнай кладкі, тынкоўкі. **2.** Прыстасаванне ў форме ступні чалавека, якая кладзецца ў боты, іншы абутак для захавання яго формы.

**ПРАВІ́ЗАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аптэчны работнік, фармацэўт вышэйшай кваліфікацыі. ‖ *прым.* **праві́зарскі**, -ая, -ае.

**ПРАВІ́ЗІЯ**, -і, *ж.* Прадукты харчавання. ‖ *прым.* **правізі́йны**, -ая, -ае.

**ПРАВІЗО́РНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Папярэдні або часовы. *Правізорная ацэнка.*

**ПРА́ВІЛА**, -а, *мн.* -ы, -віл *і* -аў, *н.* **1.** Палажэнне, якое выражае заканамернасць, пастаянныя суадносіны якіх-н. з'яў. *Граматычныя правілы. Па ўсіх правілах* (так, як трэба; разм.). **2.** звычайна *мн.* Пастанова, палажэнне, якія абавязваюць захоўваць пэўны парадак пры выкананні чаго-н. *Правілы вулічнага руху. Правілы ўнутранага распарадку.* **3.** Склад думак, норма паводзін, прывычка. *Чалавек строгіх правіл. Узяць сабе што-н. за п.* ◊ **Як правіла** — звычайна, найчасцей.

**ПРА́ВІЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не адступае ад правіл, норм, прапорцый. *Правільнае напісанне. Правільныя рысы твару.* **2.** Заканамерны, рэгулярны. *Правільная змена пор года.* **3.** Які адпавядае сапраўднасці, такі, як патрэбна. *П. адказ. Правільнае разуменне сучаснага становішча.* **4.** Пра многавугольнік: які мае роўныя вуглы і стораны; пра мнагаграннік: які мае грані — аднолькавыя правільныя многавугольнікі і роўныя мнагагранныя вуглы пры вяршынях. ‖ *наз.* **пра́вільнасць**, -і, *ж.*

**ПРАВІНАВА́ЦІЦЦА**, -ва́чуся, -ва́цішся, -ва́ціцца; *зак., у чым* або *чым перад кім.* Тое, што і *правініцца.*

**ПРАВІНІ́ЦЦА**, -нюся, -ні́шся, -ні́цца; -ні́мся, -ніце́ся, -ня́цца; *зак., у чым* або *чым перад кім.* Учыніць якую-н. правіннасць, стаць вінаватым. *П. перад бацькамі.*

**ПРАВІ́ННАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Дрэнны ўчынак, віна. *Не даравацъ нават маленькай правіннасці.*

**ПРАВІ́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** У некаторых дзяржавах: вобласць, адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка. *П. Падуя.* **2.** Мясцовасць, тэрыторыя краіны, аддаленая ад буйных цэнтраў. *Глухая п.* ‖ *прым.* **правінцыя́льны**, -ая, -ае.

**ПРАВІНЦЫЯ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Жыхар правінцыі (у 2 знач.; уст.). **2.** *перан.* Чалавек з адсталымі, абмежаванымі поглядамі. ‖ *ж.* **правінцыя́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак.

**ПРАВІНЦЫЯЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Правінцыяльныя погляды, манеры.

**ПРАВІНЦЫЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* правінцыя. **2.** *перан.* Адсталы, абмежаваны ў поглядах, наіўны. *Правінцыяльныя норавы.* ‖ *наз.* **правінцыя́льнасць**, -і, *ж.*

**ПРАВІ́СНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; праві́с, -сла; *зак.* Апусціцца, прагнуўшыся ўсярэдзіне пад цяжарам. *Правады правіслі.* ‖ *незак.* **правіса́ць**, -а́е. ‖ *наз.* **правіса́нне**, -я, *н.*

**ПРАВІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (кніжн.). Асоба, якая правіць краінай, дзяржавай. ‖ *ж.* **праві́цельніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **праві́цельскі**, -ая, -ае.

**ПРА́ВІЦЦА**, пра́ўлюся, пра́вішся, пра́віцца; *незак.* **1.** Папраўляцца, ачуньваць (пасля хваробы); паўнець (разм.). *Хворы пачаў п. П. на добрых харчах.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Рабіцца лепшым. *Надвор'е пачало п.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Адбывацца, служыцца. *Правіцца абедня.*

**ПРА́ВІЦЬ**[1], пра́ўлю, пра́віш, пра́віць; *незак., кім-чым.* **1.** Кіраваць, маючы ўладу. *П. дзяржавай.* **2.** Накіроўваць чый-н. рух. *П. коньмі, яхтай.* **3.** Адпраўляць, праводзіць якое-н. дзеянне. *П. малебен.* ‖ *наз.* **праўле́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПРА́ВІЦЬ**[2], пра́ўлю, пра́віш, пра́віць; пра́ўлены; *незак., што.* **1.** Рамантаваць, папраўляць. *П. хамут.* **2.** Выпраўляць памылкі ў чым-н. *П. карэктуру.* **3.** Тачыць, вастрыць. *П. брытву.* ‖ *наз.* **пра́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПРАВІЯ́НТ**, -у, *М* -нце, *м.* (уст.). Прадукты для арміі. ‖ *прым.* **правія́нцкі**, -ая, -ае.

**ПРАВО́БРАЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). **1.** Тое, што з'яўляецца ўзорам для чаго-н. *П. будучага горада.* **2.** Асоба, якая з'явілася асновай для стварэння літаратурнага персанажа; прататып.

**ПРАВО́Д** *гл.* правесці.

**ПРАВО́ДЗІНЫ** *гл.* правесці.

**ПРАВО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* **1.** *гл.* правесці. **2.** *што.* Быць праваднікόм[2] (у 1 знач.) чаго-н. *Метал добра праводзіць электрычнасць.*

**ПРАВО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* **1.** *гл.* правесці. **2.** *мн.* -і, -дак. Сетка правадоў для перадачы току нізкага напружання. *Электрычная п.*

**ПРАВО́ДНАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Здольнасць прапускаць праз сябе электрычны ток, цяпло, гук і пад. *П. металаў.*

**ПРАВО́З** *гл.* правезці.

**ПРАВО́ЗІЦЬ** *гл.* правезці.

**ПРАВО́РВАННЕ** *гл.* праараць.

**ПРАВО́РВАЦЬ** *гл.* праараць.

**ПРАВО́ШЧВАЦЬ** *гл.* правашчыць.

**ПРАВУ́ЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* (разм.). Вузкая вуліца паміж дамамі. ‖ *прым.* **праву́лачны**, -ая, -ае.

**ПРАВУЧЫ́ЦЦА**, -учу́ся, -у́чышся, -у́чыцца; *зак.* Правесці які-н. час за вучэннем. *Правучыўся шэсць гадоў.*

**ПРАВУЧЫ́ЦЬ**, -учу́, -у́чыш, -у́чыць; -у́чаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Пакараць для пастраху. *П. дурасліўца.* **2.** *што.* Правесці які-н. час, вучачы што-н. *П. урокі ўвесь вечар.* ‖ *незак.* **праву́чваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРА́ВЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца, размешчаны з боку, што з'яўляецца процілеглым леваму. *Правая рука* (таксама перан.: галоўны памочнік). *П. бераг ракі.* **2.** У палітыцы: кансерватыўны, рэакцыйны, варожы ўсякаму прагрэсу. *Чалавек правых поглядаў.*

**ПРА́ВЫ**[2], -ая, -ае. **1.** Справядлівы, праўдзівы. *Наша справа правая.* **2.** Не вінаваты, які не парушае законы. *Суд прызнаў яго правым.* **3.** часцей *кар. ф.* (праў, пра́ва). Які правільна, беспамылкова думае, гаворыць, дзейнічае. *Ён тут абсалютна праў.*

**ПРАВЭ́НДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* Зрабіцца вэнджаным. *Шынка правэндзілася.* ‖ *незак.* **правэ́нджвацца**, -аецца.

**ПРАВЭ́НДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць вэнджаным. *П. шынку.* **2.** Падвергнуць вэнджанню на працягу якога-н. часу. ‖ *незак.* **правэ́нджваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАВЯДЗЕ́ННЕ** *гл.* правесці.

**ПРАВЯ́ЛІЦЦА** *гл.* вяліцца.

**ПРАВЯ́ЛІЦЬ** *гл.* вяліць.

**ПРАВЯ́НУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; правя́ў, -вя́ла; *зак.* Злёгку звянуць. *На сонцы трава правяла.*

**ПРАВЯРА́ЦЬ** *гл.* праверыць.

**ПРАВЯРНУ́ЦЬ**, -ярну́, -е́рнеш, -е́рне; -ярні́; -е́рнуты; *зак., што* (разм.). Ажыццявіць, зрабіць спрытна і хутка. *П. справу. П. пытанне.*

**ПРА́ГА**, -і, *ДМ* пра́зе, *ж.* **1.** Жаданне, патрэбнасць піць, смага. *П. піць.* **2.** *перан., чаго* і *да чаго.* Моцнае, палкае жаданне чаго-н. (высок.). *П. да ведаў.*

**ПРАГАБЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *зак., што.* **1.** Выгабляваць усю паверхню чаго-н. *П. дошку.* **2.** Зрабіць гэблем палоску ў чым-н. **3.** і *без дап.* Габляваць некаторы час. ‖ *незак.* **прагаблёўваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПРАГАВАРЫ́ЦЦА**, -ару́ся, -о́рышся, -о́рыцца; *зак.* Незнарок сказаць тое, чаго не варта гаварыць. *П. аб сваіх задумах.* ‖ *незак.* **прагаво́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАГАВАРЫ́ЦЬ**, -ару́, -о́рыш, -о́рыць; -о́раны; *зак.* **1.** *што* і *без дап.* Прамовіць, сказаць. *Не прагаварыў ні слова.* **2.** Правесці некаторы час у размове. *П. увесь вечар.* ‖ *незак.* **прагаво́рваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАГАВІ́ТЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *прагны.* ‖ *наз.* **прагаві́тасць**, -і, *ж.*

**ПРАГАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* Памыліўшыся ў разліках, меркаваннях, аказацца ў нявыгадным становішчы. *Я тут нічога не прагадаў.* ‖ *незак.* **прага́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАГА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *прагаліна.*

**ПРАГАЛАДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Адчуць голад, захацець есці. *За дзень прагаладаўся.*

**ПРАГАЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* Прабыць які-н. час галадаючы, без ежы. *Давялося дзень п.*

**ПРАГАЛАСАВА́ЦЬ** *гл.* галасаваць.

**ПРАГА́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Месца, не запоўненае тым, што знаходзіцца вакол яго (напр., невялікая палянка ў лесе, светлая пляма на хмарным небе і пад.). ‖ *памянш.* **прага́лінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**ПРАГАЛІ́ЦЬ**, -алю́, -о́ліш, -о́ліць; -о́лены; *зак., што.* Выгаліць палоску паміж валасамі, прабрыць. ‖ *незак.* **прага́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАГАНДЛЯВА́ЦЦА**, -лю́юся, -лю́ешся, -лю́ецца; -лю́йся; *зак.* Панесці страты або разарыцца ад няўдалага гандлю.

**ПРАГАНДЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *зак.* **1.** *што.* Гандлюючы, панесці страты ў якім-н. памеры. *П. чатырыста рублёў.* **2.** *чым* і *без дап.* Правесці які-н. час, гандлюючы чым-н. *Прагандляваў увесь дзень.*

**ПРАГАНЯ́ЦЬ** *гл.* прагнаць.

**ПРАГАРНУ́ЦЬ**, -гарну́, -го́рнеш, -го́рне; -гарні́; -го́рнуты; *зак., што.* **1.** Гартаючы, перабраць старонкі, лісты чаго-н. *П. кнігу.* **2.** Разграбаючы, прачысціць. *П. дарожку ў снезе.* ‖ *незак.* **прагорт́ваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАГАРТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* **1.** Тое, што і *прагарнуць* (у 1 знач.). **2.** Правесці які-н. час, гартаючы што-н. *Увесь вечар прагартаў кнігі.*

**ПРАГАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які прагарэў, зрабіўся дзіравым.

**ПРАГАРЭ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; -ры́; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Зрабіцца дзіравым ад агню. *Сцяна прагарэла.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Згарэць зусім. *Дровы ў печы прагарэлі.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Гарэць які-н. час. *Ліхтар прагарэў усю ноч.* **4.** *перан.* Пацярпець няўдачу ў справе, пераважна грашовай (разм.). *Справа мая прагарэла.* ‖ *незак.* **прагара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1, 2 і 4 знач.) *і* **прага́рваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1, 2 і 4 знач.).

**ПРАГІ́Б**, -у, *м.* **1.** *гл.* прагнуцца, прагнуць. **2.** *мн.* -ы, -аў. Прагнутае месца. *Трэшчына ў прагібе.*

**ПРАГІБА́ННЕ** *і* **ПРАГІНА́ННЕ** *гл.* прагнуцца, прагнуць.

**ПРАГІБА́ЦЦА** *і* **ПРАГІНА́ЦЦА** *гл.* прагнуцца.

**ПРАГІБА́ЦЬ** *і* **ПРАГІНА́ЦЬ** *гл.* прагнуць.

**ПРАГІМНА́ЗІЯ**, -і, *мн.* -і, -зій, *ж.* (уст.). Няпоўная (з чатырох- або шасцікласным курсам) гімназія.

**ПРАГІ́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *прагіб* (у 2 знач.).

**ПРАГЛЕ́ДЗЕЦЬ**, -е́джу, -е́дзіш, -е́дзіць; -е́дзь; -е́джаны *і* **ПРАГЛЯДЗЕ́ЦЬ**, -яджу́, -ядзі́ш, -ядзі́ць; -ядзі́м, -едзіце́, -ядзя́ць; -ядзі́; *зак.* **1.** *што.* Аглядаючы, гледзячы, азнаёміцца з чым-н. *П. рукапіс. П. новую экспазіцыю.* **2.** *што.* Бегла прачытаць. *П. часопіс.* **3.** *каго-што.* Гледзячы, не заўважыць, прапусціць. *П. памылку.* **4.** *перан., каго-што.* Не звярнуць належнай увагі, выпусціць з поля зроку (разм.). *За справамі прагледзелі (праглядзелі) сына.* **5.** *што* і *без дап.* Правесці які-н. час, разглядаючы што-н., назіраючы за чым-н. ◊ **Усе вочы прагледзець** (разм.) — углядаючыся, доўга чакаць каго-н. ‖ *незак.* **прагляда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—4 знач.). ‖ *наз.* **прагля́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 і 2 знач.). *Калектыўны п. спектакля. Аддаць рукапіс на п. каму-н.*

**ПРАГЛЫНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* Глытаючы, прапусціць праз глотку ў страваввод. *П. кавалак. З мёдам і цвік праглынеш* (прыказка). *П. пілюлю* (перан.: моўчкі перанесці абразу). *П. язык* (перан.: замаўчаць, перастаць гаварыць; разм.). *П. кнігу* (перан.: хутка прачытаць; разм.). ‖ *незак.* **праглына́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРАГЛЯДА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для прагляду чаго-н. *Праглядальная зала.*

**ПРАГЛЯДА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца *і* **ПРАГЛЯ́ДВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* Аб прасторы: быць добра бачным, адкрытым для аглядання. *З узгорка добра праглядаецца (прагляваецца) усё наваколле.*

**ПРАГЛЯДА́ЦЬ** *гл.* прагледзець.

**ПРАГЛЯ́ДВАЦЬ** *гл.* праглянуць.

**ПРАГЛЯДЗЕ́ЦЬ** *гл.* прагледзець.

**ПРАГЛЯ́НУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; *зак.* Выглянуць, паказацца. *Праглянула сонца з-за хмар.* ‖ *незак.* **прагля́дваць**, -ае.

**ПРАГМАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Плынь у філасофіі, якая адмаўляе неабходнасць пазнання аб'ектыўных законаў рэчаіснасці і прызнае ісцінай толькі тое, што дае практычна карысныя вынікі. **2.** У гістарычнай навуцы: кірунак, які абмяжоўваецца апісаннем падзей у іх знешняй сувязі і паслядоўнасці без раскрыцця заканамернасцей іх развіцця. ‖ *прым.* **прагматы́чны**, -ая, -ае.

**ПРАГМА́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* У семіётыцы, мовазнаўстве: кірунак, які вывучае адносіны паміж сродкамі мовы і тымі, хто гэтымі сродкамі карыстаецца; самі такія адносіны. ‖ *прым.* **прагматы́чны**, -ая, -ае.

**ПРАГНАЗАВА́ЦЬ**, -у́ю, -у́еш, -у́е; -у́й; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Саставіць (саставляць) прагноз. *П. развіццё навукі.* ‖ *наз.* **прагназава́нне**, -я, *н. Навуковае п.*

**ПРАГНАЗІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па прагназаванні чаго-н. ‖ *ж.* **прагназі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, -і, -так.

**ПРА́ГНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Празмернае імкненне задаволіць якое-н. жаданне. *Есці з прагнасцю.* **2.** Ненасытнасць, жадлівасць. *П. чалавечая.*

**ПРАГНА́ЦЬ**, -ганю́, -го́ніш, -го́ніць; -гна́ў, -гна́ла; -гані́; -гна́ны; *зак.* **1.** *кагошто.* Прымусіць пайсці адкуль-н., выдаліць (груба, прымусова, сілай). *П. з хаты. П. са службы. П. змрочныя думкі* (перан.). **2.** *каго-што.* Прымусіць рухацца, ісці. *П. палонных праз горад. П. плыты па рацэ.* **3.** *што.* Ажыццявіць прагон (у 3 знач.; спец.). *П. п'есу перад прэм'ерай.* **4.** *што* і *без дап.* Хутка праехаць, прабегчы (разм.). *П. па шасэ пяць кіламетраў.* **5.** *што.* Хуткім рухам або напрамкам руху чаго-н. утварыць што-н. *П. пракос. П. разору.* **6.** *перан., што.* Задаволіўшы, спыніць, наталіць (разм.). *П. смагу.* ‖ *незак.* **прагання́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 1—3, 5 і 6 знач.).

**ПРАГНІ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які прагніў. *П. мосцік.*

**ПРАГНІ́СЦІ** *і* **ПРАГНІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ні́е, -ні́юць; *зак.* Згнісці, згніць наскрозь. *Падлога прагніла.* ‖ *незак.* **прагніва́ць**, -а́е.

**ПРАГНО́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Прадбачанне, прадказанне, заснаванае на пэўных дадзеных. *П. надвор'я. П. падзей.* ‖ *прым.* **прагно́зны**, -ая, -ае (спец.) *і* **прагнасты́чны**, -ая, -ае (спец.). *Прагнозныя разлікі. Прагнозныя запасы калійнай солі. Прагнастычны даклад.*

**ПРАГНО́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Тэорыя і практыка прагназавання.

**ПРАГНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нéцца; *зак.* Пад уздзеяннем цяжару атрымаць выгіб. *Столь прагнулася.* ‖ *незак.* **прагіна́цца**, -áецца *і* **прагіба́цца**, -áецца. ‖ *наз.* **прагíб**, -у, *м.*, **прагіна́нне**, -я, *н. і* **прагіба́нне**, -я, *н.*

**ПРА́ГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *незак.*, *чаго.* Адчуваць прагу (у 2 знач.), моцна жадаць. *П. сустрэчы з сябрамі.*

**ПРАГНУ́ЦЬ**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ні́; -нýты; *зак.*, *што.* Сілай цяжару зрабіць выгіб у чым-н. *П. металічны прут.* ‖ *незак.* **прагіна́ць**, -áю, -áеш, -áе *і* **прагіба́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **прагíб**, -у, *м.*, **прагіна́нне**, -я, *н. і* **прагіба́нне**, -я, *н.*

**ПРА́ГНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які моцна хоча, прагне чаго-н. *П. да грошай. Прагна* (прысл.) *слухаць* (перан.). *П. да ведаў.* **2.** Які выказвае прагнасць (у 1 знач.). *Прагныя вочы.* **3.** Скупы, жадлівы. *П. чалавек.*

**ПРАГО́ЛЬВАЦЬ** *гл.* прагаліць.

**ПРАГО́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Абгароджаная з двух бакоў дарога, па якой ганяюць на пашу жывёлу. **2.** Доўгі ўчастак поля, сенажаці і пад., адведзены для работы аднаму чалавеку, звяну, брыгадзе. **3.** Рэжысёрскі прагляд усяго спектакля на працягу адной рэпетыцыі (спец.). ‖ *прым.* **прагó нны**, -ая, -ае.

**ПРАГО́НЫ**, -аў (гіст.). Плата за праезд на паштовых конях ці аплата праезду па чыгунцы афіцэраў і чыноўнікаў. ‖ *прым.* **прагóнны**, -ая, -ае. *Прагонныя грошы.*

**ПРАГО́РКЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў горкім на смак у выніку псавання. *П. тлушч.* ‖ *наз.* **прагóркласць**, -і, *ж.*

**ПРАГО́РКНУЦЬ** *гл.* горкнуць.

**ПРАГО́РТВАЦЬ** *гл.* прагарнуць.

**ПРАГРАБА́ЦЬ** *гл.* прагрэбці.

**ПРАГРАВА́ННЕ** *гл.* прагрэцца.

**ПРАГРАВА́ЦЦА** *гл.* прагрэцца.

**ПРАГРАВА́ЦЬ** *гл.* прагрэць.

**ПРАГРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -рáм, *ж.* **1.** План дзейнасці, работ і пад. *П. развіцця прамысловасці. Сацыяльная п.* **2.** Выклад зместу і мэты дзейнасці палітычнай партыі, арганізацыі ці асобнага дзеяча. *П. навуковай канферэнцыі.* **3.** Кароткі выклад зместу вучэбнага прадмета. *П. па хіміі.* **4.** Змест тэатральных, канцэртных, цыркавых прадстаўленняў, радыё- і тэлеперадач, а таксама лісток з пералікам выконваемых нумароў, выступленняў, перадач і пад. *П. радыёперадач.* **5.** Апісанне алгарытму рашэння задачы на мове ЭВМ (спец.). ‖ *прым.* **прагра́мны**, -ая, -ае (да 2, 3 і 5 знач.).

**ПРАГРАМАВА́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). **1.** *гл.* праграмаваць. **2.** Частка прыкладной матэматыкі і вылічальнай тэхнікі, якая распрацоўвае метады складання праграм.

**ПРАГРАМАВА́ЦЬ**, -мýю, -мýеш, -мýе; -мýй; -вáны; *незак.*, *што* (спец.). Складаць і запісваць спецыяльным кодам праграму для ЭВМ. ‖ *зак.* **запраграмава́ць**, -мýю, -мýеш, -мýе; -мýй; -вáны. ‖ *наз.* **праграмава́нне**, -я, *н.*

**ПРАГРАМІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па праграмаванні. ‖ *ж.* **праграмі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПРАГРУКАТА́ЦЬ** *гл.* грукатаць.

**ПРАГРУКАЦЕ́ЦЬ** *гл.* грукацець.

**ПРАГРЫ́ЗЦІ**, -зý, -зéш, -зé; -зём, -зяцé, -зýць; прагры́з, -зла; -зí; -зены; *зак.*, *што.* Грызучы, зрабіць дзірку ў чым-н. *Мыш прагрызла дзірку.* ‖ *незак.* **прагрыза́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПРАГРЫМЕ́ЦЬ** *гл.* грымець.

**ПРАГРЭ́БЦІ**, -рабý, -рабéш, -рабé; -рабём, -рабяцé, -рабýць; -рóб, -рэ́бла; -рабí; -рэ́бены; *зак.*, *што.* Разграбаючы што-н., зрабіць праход (звычайна на вузкай прасторы). *П. дарожку.* ‖ *незак.* **праграба́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПРАГРЭ́С**, -у, *м.* Пастунальны рух наперад, паляпшэнне ў працэсе развіцця; *проціл.* рэгрэс. *П. навукі і тэхнікі. Ісці па шляху прагрэсу.*

**ПРАГРЭСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паступова ўзмацняцца, павялічвацца. *Хвароба прагрэсіруе.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Рухацца наперад па шляху прагрэсу. *Навука прагрэсіруе.* **3.** *у чым* і *без дап.* Паляпшаць сваё майстэрства ў якой-н. галіне, свае веды і пад., удасканальвацца. *Юны спартсмен прагрэсіруе.* ‖ *наз.* **прагрэсíраванне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ПРАГРЭСІ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -сíвак, *ж.* (разм.). Здзельная зарплата за звышпланавую прадукцыю, якая налічваецца па расцэнках, якія прагрэсіўна ўзрастаюць.

**ПРАГРЭСІ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які паступова ўзмацняецца, узрастае. *Прагрэсіўная аплата працы.* **2.** Які імкнецца да прагрэсу, перадавы. *Прагрэсіўная тэхналогія.* ‖ *наз.* **прагрэсíўнасць**, -і, *ж.*

**ПРАГРЭ́СІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* У матэматыцы: рад лікаў, што павялічваюцца або памяншаюцца, у якім рознасць або адносіны паміж суседнімі лікамі захоўваюць пастаянную велічыню. *Арыфметычная п. Геаметрычная п.*

**ПРАГРЭ́ЦЦА**, -рэ́юся, -рэ́ешся, -рэ́ецца; *зак.* Нагрэцца поўнасцю, як належыць. *Хата прагрэлася.* ‖ *незак.* **праграва́цца**, -áюся, -áешся, -áецца. ‖ *наз.* **праграва́нне**, -я, *н. і* **прагрэ́ў**, -рэ́ву, *м. Прагрэў грунту.*

**ПРАГРЭ́ЦЬ**, -рэ́ю, -рэ́еш, -рэ́е; -рэ́ты; *зак.*, *што.* Нагрэць поўнасцю, як належыць. *П. матор. П. памяшканне.* ‖ *незак.* **праграва́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПРАГУДЗЕ́ЦЬ** *гл.* гудзець.

**ПРАГУ́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Няяўка на работу, на заняткі без уважлівых прычын. *Вымушаны п.* (не па сваёй віне). ‖ *прым.* **прагу́льны**, -ая, -ае (разм.).

**ПРАГУ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Гулянне пехатой на свежым паветры або паездка на невялікую адлегласць для адпачынку. *П. за горад. Вячэрняя п.* ‖ *прым.* **прагу́лачны**, -ая, -ае. *Прагулачная лодка* (для прагулак па вадзе).

**ПРАГУ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* прагуляць. **2.** *каго (што).* Вадзіць, гуляючы (разм.). *П. сабаку.*

**ПРАГУ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які прагуляў, не з'явіўся на работу без уважлівай прычыны. *Злосны п.* ‖ *ж.* **прагу́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПРАГУЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* Пахадзіць гуляючы. *П. па прысадах.* ‖ *незак.* **прагу́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАГУЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** Правесці некаторы час у гулянні (у 1—3, 5 і 7 знач.) *П. гадзіну на свежым паветры. Паўдня прагулялі ў шашкі.* **2.** *што.* З-за гульні прапусціць што-н., пазбавіцца чаго-н. (разм.). *П. вячэру.* **3.** *што* і *без дап.* Не з'явіцца на работу, зрабіць прагул. *П. заняткі.* **4.** *што.* Патраціць на гулянне, п'янства (разм.). *П. многа грошай.* **5.** *каго-што.* Пацярпець паражэнне ў гульні або прайграць каго-, што-н. *П. шахматную партыю.* ‖ *незак.* **прагу́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАГУМАВА́ЦЬ**, -мýю, -мýеш, -мýе; -мýй; -мавáны; *зак.*, *што.* Насыціць гумавай сумессю. *П. тканіну. Прагумаваць плашч.* ‖ *незак.* **прагумо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАГУСЦІ́** *гл.* гусці.

**ПРАГУЧА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чы́ць; *зак.* **1.** Раздацца (пра які-н. гук). *Прагучаў стрэл.* **2.** Праявіцца, выявіцца (у гуку, голасе і пад.). *У яго голасе прагучала іронія.*

**ПРАДАВА́ЦЦА** *гл.* прадацца, прадаць.

**ПРАДАВА́ЦЬ** *гл.* прадаць.

**ПРАДАВЕ́Ц**, -даўцá, *мн.* -даўцы́, -даўцóў, *м.* **1.** Работнік магазіна, гандлёвага прадпрыемства, які прадае тавар пакупнікам. *П. марожанага.* **2.** Чалавек, які прадае што-н. *П. кветак.* ‖ *ж.* **прадаўшчы́ца**, -ы, *мн.* -ы, -чы́ц.

**ПРАДА́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто прадае, прадаў (у 2 знач.) каго-, што-н., здраднік. ‖ *ж.* **прада́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПРАДА́ЖНІЦКІ**, -ая, -ае. **1.** Уласцівы прадажніку, здрадніцкі. *Прадажніцкае забойства.* **2.** *перан.* Каварны, падманлівы, які тоіць у сабе што-н. непрыемнае. *Прадажніцкая ўсмешка.*

**ПРАДА́ЖНІЦТВА**, -ы, *н.* Прадажніцкія паводзіны, учынкі. *Пайсці на чорнае п.*

**ПРАДА́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* продаж. **2.** Прызначаны для продажу. *Прадажная рэч.* **3.** Пра цану, вартасць: які бярэцца пры продажы. *Прадажная цана тавару.* **4.** Які за грошы, за подкуп здольны да ганебных учынкаў. *П. чалавек. Прадажнае пяро.* ‖ *ж.* **прада́жнасць**, -і, *ж.* (да 4 знач.).

**ПРАДАЎГАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Які мае падоўжаную форму. *П. твар.* ‖ *наз.* **прадаўгава́тасць**, -і, *ж.*

**ПРАДАЎЖА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (высок.). Той, хто прадаўжае і развівае

справу, ідэі свайго папярэдніка. ‖ *ж.* **прадаўжáльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПРАДАЎЖÁЦЦА** *гл.* прадоўжыцца.

**ПРАДАЎЖÁЦЬ** *гл.* прадоўжыць.

**ПРАДАЎШЧЫ́ЦА** *гл.* прадавец.

**ПРАДÁЦЦА**, -дáмся, -дасі́ся, -дáсца; -дадзі́мся, -дасцéся, -дадýцца; -дáўся, -далáся, -лóся; -дáйся; *зак.* Здрадзіць, перайсці на які-н. бок з-за карысці, уласнай выгады. *П. ворагу.* ‖ *незак.* **прадавáцца**, -даюся, -даéшся, -даéцца; -даёмся, -даяцéся, -даю́цца.

**ПРАДÁЦЬ**, -дáм, -дасі́, -дáсць; -дадзі́м, -дасцé, -дадýць; -дáў, -далá, -лó; -дáй; -дáдзены; *зак., каго-што.* **1.** Аддаць каму-н. за плату (пра гандлёвую здзелку). *П. хату.* **2.** *перан.* Выдаць каго-н., здрадзіць каму-, чаму-н. *П. сябра.* ‖ *незак.* **прадавáць**, -даю́, -даéш, -даé; -даём, -даяцé, -даю́ць. ‖ *наз.* **прóдаж**, -у, *м.* (да 1 знач.).

**ПРАДБÁЧЛІВЫ**, -ая, -ае. Здольны прадбачыць магчымыя вынікі, падзеі ў будучым. *П. чалавек. Прадбачліва* (прысл.) *пастуціць.* ‖ *наз.* **прадбáчлівасць**, -і, *ж.*

**ПРАДБÁЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *незак.* Чакацца, меркавацца. *Змены прадбачацца.*

**ПРАДБÁЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *незак., што.* Загадзя ўлічваць, угадваць магчымасць паяўлення, недахопу чаго-н. *П. ход падзей. П. віруснае захворванне.* ‖ *наз.* **прадбáчанне**, -я, *н. Навуковае п.*

**ПРАДВАДЗІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Кіраўнік, важак. *П. племя.* ○ **Прадвадзіцель дваранства** — у царскай Расіі: выбарны прадстаўнік дваранскага саслоўя губерні ці павета. ‖ *прым.* **прадвадзі́цельскі**, -ая, -ае.

**ПРАДВАДЗІ́ЦЕЛЬСТВА**, -а, *н.* Званне, пасада прадвадзіцеля дваранства ў царскай Расіі.

**ПРАДВЕ́СНЕ**, -я, *н.* Час, які папярэднічае вясне. *Блізіцца прадвесне.*

**ПРАДВЕ́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто (або тое, што) прадвяшчае што-н. ‖ *ж.* **прадвéсніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПРАДВЕ́СЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (кніжн.). З'ява, прымета, якая прадвяшчае што-н. *П. навальніцы.*

**ПРАДВЫЗНАЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Наперад вызначыць, абумовіць. *Удалы пачатак прадвызначыў далейшы поспех.* ‖ *незак.* **прадвызначáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **прадвызначэ́нне**, -я, *н.*

**ПРАДВЯСЦІ́Ць**, -вяшчý, -вéсціш, -вéсціць; -вéшчаны; *зак., што* (уст.). Сказаць наперад пра тое, што будзе, адбудзецца, прадказаць. ‖ *незак.* **прадвяшчáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПРÁДЗЕД**, -а, *М* -дзедзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Бацька дзеда або бабулі. **2.** звычайна *мн.* Продкі. *Нашы прадзеды.* ‖ *прым.* **прáдзедаўскі**, -ая, -ае.

**ПРАДЗЕ́ННЕ** *гл.* прасці.

**ПРÁДЗЕНЫ**, -ая, -ае. Выраблены прадзеннем. *П. шоўк.*

**ПРАДЗЕ́РЦІ**, -дзярý, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзярóм, -дзерацé, -дзярýць; -дзёр, -дзéрла; -дзяры́; -дзёрты; *зак., што.* Тое, што і *прадраць.* ‖ *незак.* **прадзірáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПРАДЗЕ́РЦІСЯ**, -дзярýся, -дзярэ́шся, -дзярэ́цца; -дзярóмся, -дзерацéся, -дзярýцца; -дзёрся, -дзéрлася; -дзяры́ся; *зак.* Тое, што і *прадрацца.* ‖ *незак.* **прадзірáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ПРÁДЗІВА**, -а, *н.* **1.** *гл.* прасці. **2.** Тое, што спрадзена ці тое, што прыгатавана для прадзення.

**ПРАДЗІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для прадзення. *П. станок.*

**ПРАДЗІ́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* (уст.). Прадзільная фабрыка або майстэрня.

**ПРАДЗІ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, заняты вырабам пражы. ‖ *ж.* **прадзі́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПРАДЗІМÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *гл.* прадзьмуць. **2.** *каго-што.* Аб патоку паветра: дзьмуць наскрозь, абдзімаць з усіх бакоў. *Вецер прадзімае.*

**ПРАДЗІРÁВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* (разм.). Зрабіцца дзіравым; знасіцца да дзірак. *Кашуля прадзіравілася.* ‖ *незак.* **прадзірáўліваццa**, -аецца.

**ПРАДЗІРÁВІЦЬ**, -рáўлю, -рáвіш, -рáвіць; -рáўлены; *зак., што* (разм.). Зрабіць дзірку ў чым-н.; разарваць. *П. лодку. П. штаны.* ‖ *незак.* **прадзірáўліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАДЗІРÁЦЦА** *гл.* прадрацца, прадзерціся.

**ПРАДЗІРÁЦЬ** *гл.* прадраць, прадзерці.

**ПРАДЗЬМÝХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Прачысціць струменем паветра. *П. муштук.* ‖ *незак.* **прадзьмýхваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАДЗЬМÝЦЬ**, -мý, -мéш, -мé; -мём, -мяцé, -мýць; -мі́; -мýты; *зак.* **1.** *што.* Тое, што і *прадзьмухаць.* **2.** *безас., каго-што.* Праняць ветрам, выклікаўшы ахаладжэнне. *Яго прадзьмула* (прастудзіўся). ‖ *незак.* **прадзімáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПРАДЗЯЎБÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Тое, што і *прадзяўбці.* ‖ *незак.* **прадзёўбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАДЗЯЎБЦІ́**, -дзяўбý, -дзяўбéш, -дзяўбé; -дзяўбём, -дзеўбяцé, -дзяўбýць; -дзёўб, -дзяўблá, -лó; -дзяўбі́; -дзяўбáны і -дзёўбаны; *зак.* **1.** *гл.* дзяўбці. **2.** *што.* Прабіць ударамі дзюбы. **3.** *што* і *без дап.* Правесці які-н. час за дзяўбаннем. ‖ *незак.* **прадзёўбваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПРАДЗЯЎБЦІ́СЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -бéцца; *зак.* Пра птушаня: прадзёўбшы шалупайку, выбрацца з яйца. ‖ *незак.* **прадзёўбвацца**, -аецца.

**ПРАДКАЗÁЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які прадказвае, прадбачыць што-н. *Ён аказаўся добрым прадказальнікам.* ‖ *ж.* **прадказáльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПРАДКАЗÁННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* прадказаць. **2.** Тое, што прадказана. *Збылося п.*

**ПРАДКАЗÁЦЬ**, -кажý, -кáжаш, -кáжа; -кажы́; -кáзаны; *зак., што.* Наперад сказаць, што будзе, што павінна адбыцца. *Правільна п. надвор'е.* ‖ *незак.* **прадкáзваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прадказáнне**, -я, *н.*

**ПРАДМЕ́СЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Пасёлак, які размешчаны непадалёку ад горада, але не ўваходзіць у яго межы.

**ПРАДМЕ́Т**, -а, *М* -мéце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Канкрэтная матэрыяльная з'ява; рэч. *Адушаўлёны п. Прадметы хатняга ўжытку.* **2.** *чаго.* Тое, на што накіравана думка, што складае яе змест або на што накіравана якое-н. дзеянне. *П. гаворкі. П. даследавання.* **3.** Асобнае кола ведаў, якое ўтварае пэўную школьную дысцыпліну. *Добрыя адзнакі па ўсіх прадметах. Прафілюючыя прадметы ў вышэйшай навучальнай установе.* ‖ *прым.* **прадмéтны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.). *П. паказальнік* (у кнігах). *Прадметная агітацыя* (наглядная).

**ПРАДМЕ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Настаўнік, спецыяліст па якім-н. вучэбным прадмеце. *Аб'яднанні прадметнікаў.*

**ПРАДМÓВА**, -ы, *мн.* -ы, -мóў, *ж.* Уводны артыкул да якога-н. твора. *П. да манаграфіі.*

**ПРАДÓННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Бяздонне, прорва. *П. ў гарах.*

**ПРАДÓЎЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* Падоўжыцца, працягнуцца. *Яго жыццё прадоўжыцца ў дзецях і ўнуках.* ‖ *незак.* **прадаўжáцца**, -áецца. ‖ *наз.* **прадаўжэ́нне**, -я, *н.*

**ПРАДÓЎЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* **1.** Працягнуць якое-н. дзеянне; вярнуцца (пасля перапынку) да пачатага. *П. следства. П. сход.* **2.** Зрабіць больш працяглым у часе; павялічыць. *П. адпачынак. П. свой род.* ‖ *незак.* **прадаўжáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **прадаўжэ́нне**, -я, *н.*

**ПРАДПАСЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Тое, што і *перадумова.* **2.** Зыходны пункт якога-н. разважання.

**ПРАДПІСÁННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Пісьмовае распараджэнне, загад (афіц.). *Тэрміновае п.* **2.** Указанне захоўваць што-н. (кніжн.). *П. ўрача.*

**ПРАДПІСÁЦЬ**, -пішý, -пі́шаш, -пі́ша; -пішы́; -пі́саны; *зак., каму што* і *з інф.* **1.** Аддаць распараджэнне, загадаць (афіц.). *П. выехаць.* **2.** Паставіць у абавязак выконваць што-н. (кніжн.). *П. строгую дыету.* ‖ *незак.* **прадпі́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАДПРЫЕ́МЕЦ**, -мца, *мн.* -мцы, -мцаў, *м.* Тое, што і *прадпрымальнік.* ‖ *прым.* **прадпрыéмніцкі**, -ая, -ае.

**ПРАДПРЫЕ́МЛІВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *прадпрымальны.* ‖ *наз.* **прадпрыéмлівасць**, -і, *ж.*

**ПРАДПРЫЕ́МСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Вытворчая ці гандлёвая ўстанова. *Прадпрыемствы горада.* **2.** Задуманая кім-н. камерцыйная справа. *Цікавае і выгаднае п.*

**ПРАДПРЫМÁЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Уласнік, які валодае прадпрыемствам;

той, хто бярэцца за арганізацыю якой-н. справы, што прыносіць прыбытак. *Буйны п.* ‖ *ж.* **прадпрымáльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **прадпрымáльніцкі**, -ая, -ае.

**ПРАДПРЫМÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які ўмее арганізаваць, зрабіць што-н. у патрэбны момант, знаходлівы і практычны. *П. чалавек.* ‖ *наз.* **прадпрымáльнасць**, -і, *ж.*

**ПРАДРАКÁЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто прадракае, прадказвае што-н. наперад. ‖ *ж.* **прадракáльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПРАДРАКÁННЕ**, -я, *н.* (кніжн.). **1.** *гл.* прадрачы. **2.** *мн.* -і, -яў. Прадказанне, прароцтва, тое, што прадракаюць. *Прадраканні не заўсёды збываюцца.*

**ПРАДРÁЦЦА**, -дзярýся, -дзярэ́шся, -дзярэ́цца; -дзярóмся, -дзерацéся, -дзярýцца; -дрáўся, -дрáлася; -дзяры́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прадзіравіцца, знасіцца да дзірак. *Шкарпэткі прадраліся.* **2.** Прабрацца з цяжкасцю, прабіцца праз што-н. *П. праз гушчар.* ‖ *незак.* **прадзірáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ПРАДРÁЦЬ**, -дзярý, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзярóм, -дзерацé, -дзярýць; -дрáў, -дрáла; -дзяры́; -дрáны; *зак., што.* **1.** Прадзіравіць, знасіць да дзірак. *П. рукавы на локцях.* **2.** Прарваць чым-н. вострым. *П. страху.* ◊ **Вочы прадраць** (разм., неадабр.) — прачнуцца. ‖ *незак.* **прадзірáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПРАДРАЧЫ́**, -ракý, -рачэ́ш, -рачэ́; -рачóм, -рачацé, -ракýць; -рóк, -raклá, -лó; -рачы́; -рачóны; *зак., што* (кніжн.). Наперад прадказаць тое, што будзе, адбудзецца. ‖ *незак.* **прадракáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПРАДРАШЫ́ЦЬ**, -ашý, -óшыш, -óшыць; -ашóны; *зак., што.* Рашыць наперад. *П. пытанне.* ‖ *незак.* **прадрашáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПРАДРУКАВÁЦЬ**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; *зак.* Правесці які-н. час друкуючы. *Давялося п. дзве гадзіны.*

**ПРАДСТÁВІЦЦА**, -тáўлюся, -тáвішся, -тáвіцца; *зак.* **1.** *каму* і *без дап.* Назваць сябе, знаёмячыся з кім-н. *П. прысутным.* **2.** Уявіцца, паказацца. *Яго словы прадставіліся цяпер у іншым святле.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Узнікнуць, надарыцца. *Прадставіўся зручны выпадак.* ‖ *незак.* **прадстаўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **прадстаўлéнне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПРАДСТÁВІЦЬ**, -тáўлю, -тáвіш, -тáвіць; -тáўлены; *зак.* **1.** *каго-што, каму.* Даставіць, паказаць, прад'явіць. *П. дакументы. П. доказы.* **2.** *каго (што)* і *каму.* Пазнаёміць з кім-н. *П. новага выкладчыка педагагічнаму савету.* **3.** *каго (што)* і *да чаго.* Прызнаўшы дастойным чаго-н., хадайнічаць аб чым-н. (аб павышэнні, узнагародзе і пад.). *П. да ўзнагароды.* ‖ *незак.* **прадстаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **прадстаўлéнне**, -я, *н.*

**ПРАДСТАЎЛÉННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* прадставіцца, прадставіць. **2.** *мн.* -і, -яў. Пісьмовая заява з прапановай аб чым-н. (афіц.). *П. аб пераводзе на новую пасаду.*

**ПРАДСТÁЎЛЕНЫ**, -ая, -ае. Які мае прадстаўнікоў (у 1 знач.) дзе-н. *На форуме прадстаўлены многія краіны.*

**ПРАДСТАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., каго-што.* **1.** *гл.* прадставіць. **2.** Дзейнічаць па чыім-н. даручэнні, быць чыім-н. прадстаўніком. *П. інтарэсы працоўных.*

**ПРАДСТАЎНІ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* **1.** Асоба, якая прадстаўляе (у 2 знач.) чые-н. інтарэсы, адлюстроўвае чые-н. погляды. *П. адміністрацыі. Дыпламатычны п.* **2.** Чалавек, які прадстаўляе ў сваёй асобе які-н. разрад, групу людзей ці якую-н. галіну дзейнасці, выразнік чыіх-н. інтарэсаў. *Прадстаўнікі старэйшага пакалення вучоных.* **3.** Тыповы ўзор таго або іншага разраду істот, прадметаў. *П. мясцовай флоры.* ‖ *ж.* **прадстаўні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц. ‖ *прым.* **прадстаўні́цкі**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**ПРАДСТАЎНІ́ЦТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Выкананне абавязкаў прадстаўніка (у 1 знач.; кніжн.). *П. чыіх-н. інтарэсаў.* **2.** Установа, якая абараняе інтарэсы. *Гандлёвае п.* **3.** Права, парадак выбару прадстаўнікоў у якія-н. органы (кніжн.). *Народнае п.*

**ПРАДСТАЎНІ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Выбарны, заснаваны на прадстаўніцтве (у 3 знач.). *П. сход. П. орган.* **2.** Які добра адлюстроўвае чые-н. інтарэсы, аўтарытэтны. *Недастаткова прадстаўнічая камісія.*

**ПРАДУБЛІ́РАВАЦЬ** *гл.* дубліраваць.

**ПРАДУГАДÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Наперад угадаць, прадугледзець. *П. адказ.* ‖ *незак.* **прадугáдваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАДУГЛÉДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Наперад убачыць, угадаць магчымасць чаго-н. *П. усе выпадкі.* ‖ *незак.* **прадуглéджваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАДУЗЯ́ТЫ**, -ая, -ае. Заснаваны на думцы, якая загадзя беспадстаўна была прынята за правільную. *Прадузята* (прысл.) *аднесціся да чаго-н. П. погляд.* ‖ *наз.* **прадузя́тасць**, -і, *ж.*

**ПРАДУ́КТ**, -у, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прадмет як вынік чалавечай працы (апрацоўкі, перапрацоўкі, даследавання і пад.). *П. абмену. Манаграфія — п. шматгадовай працы. Прадукты хімічнай перапрацоўкі дрэва.* **2.** *перан.* Вынік, гістарычнае параджэнне чаго-н. (кніжн.). *Мова — п. гістарычнага развіцця грамадства.*

**ПРАДУКТААБМÉН**, -у, *м.* Абмен аднаго віду прадуктаў, вырабаў на другі від як адна з форм эканамічных сувязей у грамадстве.

**ПРАДУ́КТЫ**, -аў, са словам «харчавання» і без яго. Прадметы харчавання, харчовыя прыпасы. *Мясныя п. Запас прадуктаў.* ‖ *прым.* **прадуктóвы**, -ая, -ае.

**ПРАДУКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. У граматыцы: здольны ўтвараць новыя словы або формы слоў. *П. суфікс.* ‖ *наз.* **прадуктыў-насць**, -і, *ж.*

**ПРАДУКЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Плённы. *Прадукцыйная праца.* **2.** Які мае адносіны да развядзення жывёлы для атрымання прадуктаў жывёлагадоўлі. *Прадукцыйная жывёлагадоўля.* ‖ *наз.* **прадукцы́йнасць**, -і, *ж.*

**ПРАДУ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* Сукупнасць прадуктаў вытворчасці або асобны прадукт вытворчасці. *Дабівацца высокай якасці прадукцыі. Літаратурная п.* (пра творы мастацкай літаратуры, кнігі).

**ПРАДУ́МАНЫ**, -ая, -ае. Разумны, абгрунтаваны. *П. адказ.* ‖ *наз.* **праду́манасць**, -і, *ж.*

**ПРАДУ́МАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Тое, што і *абдумаць. П. план дзеянняў.* **2.** Правесці які-н. час думаючы. ‖ *незак.* **праду́мваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАДУ́ХА**, -і, *ДМ* -ду́се, *мн.* -і, -ду́х, *ж.* (разм.). **1.** Адтуліна для выхаду паветра. *П. ў склепе.* **2.** Тое, што дае выхад пачуццям, імкненням і пад. *Працуеш як вол, а прадухі ніякай.*

**ПРАДУХІЛІ́ЦЬ**, -ілю́, -і́ліш, -і́ліць; -і́лены; *зак., што.* Загадзя ліквідаваць, устараніць. *П. бяду.* ‖ *незак.* **прадухіля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **прадухілéнне**, -я, *н.*

**ПРАДУ́ШЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -шын, *ж.* Тое, што і *прадуха.*

**ПРАДУШЫ́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -ýшыцца; *зак.* Прагнуцца, праламацца пад цяжарам чаго-н. *Чамадан прадушыўся.* ‖ *незак.* **праду́швацца**, -аецца.

**ПРАДУШЫ́ЦЦА**[2], -ушýся, -ýшышся, -ýшыцца; *зак.* (разм.). Прасякнуцца якім-н. пахам. *Прадушыўся табакай аж сам сабе нялюбы.*

**ПРАДУШЫ́ЦЬ**[1], -ушý, -ýшыш, -ýшыць; -ýшаны; *зак., што.* Моцна націснуўшы, прагнуць, праламаць. *П. шкло. П. крэсла.* ‖ *незак.* **праду́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАДУШЫ́ЦЬ**[2], -ушý, -ýшыш, -ýшыць; -ýшаны; *зак., каго-што* (разм.). Насыціць чым-н. пахучым. *П. пакой духамі.*

**ПРАДЧУВÁННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Чаканне чаго-н., што павінна адбыцца, або чаго-н. невядомага. *Некаторыя людзі вераць прадчуванням.*

**ПРАДЧУВÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак., што.* Загадзя адчуваць, мець прадчуванне чаго-н. *П. прыход смерці.*

**ПРАДЫКТАВÁЦЬ** *гл.* дыктаваць.

**ПРАДЫ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Перавесці дыханне, аддыхацца. *Дайце чалавеку п.*

**ПРАДЫХНУ́ЦЬ**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ні́; *зак.* Уздыхнуць на поўныя грудзі. *Спёка такая, што не п. Работы — не п.* (вельмі многа.).

**ПРАДЭЗЫНФІЦЫ́РАВАЦЬ** *гл.* дэзынфіцыраваць.

**ПРАДЭКЛАМАВÁЦЬ** *гл.* дэкламаваць.

**ПРАДЭМАНСТРАВÁЦЬ** *гл.* дэманстраваць.

**ПРАД'ЯВІ́ЦЬ**, -яўлю́, -я́віш, -я́віць; -я́ўлены; *зак., што.* **1.** Паказаць у пацвярджэнне чаго-н. *Прад'явіце праязныя дакументы!* **2.** Заявіць аб якой-н. прэтэнзіі ў адносінах да каго-н. (афіц.). *П. абвіна-*

*ваčанне. П. іск.* ‖ *незак.* **прад'яўляць**, -яю, -яеш, -яе. ‖ *наз.* **прад'яўленне**, -я, *н.*

**ПРАД'ЯЎНІК**, -а, *мн.* -і, -оў, *м.* (афіц.). Той, хто прад'яўляе што-н., які-н. дакумент. *П. мандата. Чэк з выплатай на прад'яўніка.* ‖ *ж.* **прад'яўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **прад'яўнічы**, -ая, -ае. *П. чэк.*

**ПРАЕЗД**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** *гл.* праехаць. **2.** *мн.* -ы, -аў. Месца, дзе можна праехаць. *Вузкі п.* **3.** *мн.* -ы, -аў. Вуліца або завулак, якія злучаюць паралельныя вуліцы.

**ПРАЕЗДАМ**, *прысл.* Праязджаючы міма, па дарозе. *Наведаць сяброў п.*

**ПРАЕЗДЖЫ**, -ая, -ае. **1.** Які праязджае міма. *Праезджыя людзі. Многа праезджых* (наз.). **2.** Пра шлях: прыгодны, прызначаны для язды. *Праезджая дарога. Праезджая частка вуліцы.*

**ПРАЕЗДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *што.* Патраціць на паездку (разм.). *П. пяцьдзясят рублёў.* **2.** Правесці які-н. час у яздзе. *Праездзіў тры тыдні.*

**ПРАЕЗНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *праезджы* (у 2 знач.). *П. мост.*

**ПРАЕКТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Распрацаваны план стварэння, пабудовы чаго-н. *П. гідратурбіны. Дыпломны п.* (у тэхнічнай вышэйшай навучальнай установе). **2.** Папярэдні тэкст якога-н. дакумента. *П. рэзалюцыі.* **3.** План, задума. *Строіць п. асушэння балот.* ‖ *прым.* **праектны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПРАЕКТАВАЦЬ**[1], -тую, -туеш, -туе; -туй; -таваны; *незак., што.* **1.** Распрацоўваць праект (у 1 знач.). *П. завод. П. дарогу.* **2.** таксама *з інф.* Мець намер, намячаць. *П. пабудаваць новы млын.* ‖ *зак.* **спраектаваць**, -тую, -туеш, -туе; -туй; -таваны (да 1 знач.) *і* **запраектаваць**, -тую, -туеш, -туе; -туй; -таваны (да 2 знач.). ‖ *наз.* **праектаванне**, -я, *н. і* (да 1 знач.) **праекціроўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **праекціровачны**, -ая, -ае (паводле 1 знач.).

**ПРАЕКТАВАЦЬ**[2], -тую, -туеш, -туе; -туй; *незак., што* (спец.). Чарціць або перадаваць праекцыю. ‖ *наз.* **праектаванне**, -я, *н.*

**ПРАЕКТАНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто складае праект (у 1 знач.), аўтар праекта (у 1 знач.).

**ПРАЕКТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Праекцыйны апарат, які прымяняецца для атрымання павялічанага адбітка на экране.

**ПРАЕКЦІРОЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па праекціроўцы. ‖ *ж.* **праекціроўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПРАЕКЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). **1.** Адлюстраванне прасторавых фігур на плоскасці. **2.** Перадача на экран відарысаў. ‖ *прым.* **праектыўны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **праекцыйны**, -ая, -ае. *Праектыўная геаметрыя* (раздзел геаметрыі). *Праекцыйны ліхтар.*

**ПРАЕНЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак.* **1.** Абазвацца енкам. *Хворы праенчыў.* **2.** *што* і *без дап.* Сказаць з енкам. *Піць! — праенчыў ранены.* **3.** Правесці які-н. час у енках. *Увесь вечар праенчыў.*

**ПРАЕСЦІ**, -ем, -ясі, -есць; -ядзім, -ясце, -ядуць; -еў, -ела; -еш; -едзены; *зак., што.* Грызучы, пракусваючы ці раз'ядаючы, зрабіць дзірку, адтуліну, разбурыць. *Мыш праела дзірку ў скрыньцы. Іржа праела вядро.* **2.** Патраціць на ежу. *П. многа грошай.* ‖ *незак.* **праядаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАЕХАЦЦА**, -едуся, -едзешся, -едзецца; -едзься; *зак.* (разм.). **1.** Зрабіць падарожжа на чым-н. на невялікую адлегласць або, слізгаючыся, пракаціцца па чым-н. *П. па лёдзе.* **2.** са словамі «па кім-н.», «па чыім-н. адрасе» і пад. З'едліва паджартаваць з каго-н. (жарт.). ‖ *незак.* **праязджацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАЕХАЦЬ**, -еду, -едзеш, -едзе; -едзь; *зак.* **1.** *што.* Перамяшчаючыся на чым-н., мінуць, пераадолець якую-н. прастору. *П. плошчу. П. міма станцыі. П. пяць кіламетраў.* **2.** *што.* Не спыніцца, не сысці там, дзе было трэба. *П. сваю станцыю.* **3.** Правесці ў дарозе які-н. час. *П. восем гадзін.* **4.** Тое, што і *праехацца* (у 1 знач.). *Эх, добра п. па роўнай дарозе на веласіпедзе.* ‖ *незак.* **праязджаць**, -аю, -аеш, -ае (да 1, 2 і 4 знач.). ‖ *наз.* **праезд**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 знач.).

**ПРАЕЦЫРАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.* Правесці (праводзіць) праекцыю. ‖ *зак.* таксама **спраецыраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**ПРАЁМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адтуліна ў сцяне для акна, дзвярэй. *Дзвярны п.* ‖ *прым.* **праёмны**, -ая, -ае.

**ПРАЖА**, -ы, *ж.* **1.** *гл.* прасці. **2.** Ніткі, атрыманыя прадзеннем. *Шарсцяная п.*

**ПРАЖАВАЦЬ**, -жую, -жуеш, -жуе; -жуём, -жуяце, -жуюць; -жуй; -жаваны; *зак., што.* Добра разжаваць. *П. мяса.* ‖ *незак.* **пражоўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАЖАНІНА**, -ы, *ж.* Ежа, прыгатаваная з тушанага мяса і сала, падкалочаная мукой.

**ПРАЖАНЫ**, -ая, -ае. Прыгатаваны праžаннем. *П. гарох.*

**ПРАЖЫВАЦЦА** *гл.* пражыцца.

**ПРАЖЫВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* пражыць. **2.** Жыць, мець месца жыхарства дзе-н. (афіц.). *П. на ўскраіне горада.* ‖ *наз.* **пражыванне**, -я, *н.*

**ПРАЖЫВІЦЬ**, -жыўлю, -жывіш, -жывіць; *зак.* У выразе: **душу пражывіць** — пракарміцца, праіснаваць.

**ПРАЖЫТАК**, -тку, *м.* У выразе: **на пражытак** — для таго, каб пражыць. *Гэтага не хопіць на п.*

**ПРАЖЫТАЧНЫ**, -ая, -ае. Неабходны для таго, каб пражыць, праіснаваць. *П. мінімум.*

**ПРАЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *незак.* Падвяргацца праžанню. *Боб праžыцца.* ‖ *зак.* **спражыцца**, -ыцца.

**ПРАЖЫЦЦА**, -жывуся, -жывешся, -жывецца; -жывёмся, -жывяцеся, -жывуцца; -жыўся, -жылася, -лося; *зак.* (разм.). Растраціўшы, пражыўшы ўсе свае грошы, застацца без сродкаў. *П. за адпачынак.* ‖ *незак.* **пражывацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАЖЫЦЦЁ**, -я, *н.* У выразе: **на пражыццё** — тое, што і на пражытак (*гл.* пражытак).

**ПРАЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *незак.* **1.** *што.* Апрацоўваць моцным жарам перад спажываннем. *П. гарох.* **2.** *(1 і 2 ас. не ўжыв.), каго-што* і *без дап.* Моцна пячы (пра сонца, полымя і пад.). *Цэлы дзень пражыла сонца.* **3.** *(1 і 2 ас. не ўжыв.), каго* і *без дап., перан.* Мучыць, выклікаць смагу. *Яго пражыла смага.* ‖ *зак.* **спражыць**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **праžанне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**ПРАЖЫЦЬ**, -жыву, -жывеш, -жыве; -жывём, -жывяце, -жывуць; -жыў, -жыла, -ло; -жыві; -жыты; *зак.* **1.** Прабыць жывым, праіснаваць які-н. час. *П. дзевяноста шэсць гадоў.* **2.** Правесці некаторы час, жывучы дзе-н. ці якім-н. чынам. *П. сем гадоў на Далёкім Усходзе.* **3.** *што.* Патраціць на існаванне. *П. усе грошы.* ‖ *незак.* **пражываць**, -аю, -аеш, -ае (да 3 знач.).

**ПРАЖЭКТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** План на будучае (уст.). **2.** Нездзяйсняльны праект (у 3 знач.; іран.). *Строіць пражэкты.*

**ПРАЖЭКТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор з крывалінейнымі люстрамі, які пасылае яркі пучок прамянёў у пэўным напрамку. ‖ *прым.* **пражэктарны**, -ая, -ае.

**ПРАЖЭКТАРЫСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па рабоце з пражэктарамі.

**ПРАЖЭКЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца пражэкцёрствам. ‖ *ж.* **пражэкцёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **пражэкцёрскі**, -ая, -ае.

**ПРАЖЭКЦЁРСТВА**, -а, *н.* Захапленне нездзяйсняльнымі праектамі (у 3 знач.). *Марнае п.*

**ПРАЖЭРЛІВЫ**, -ая, -ае. Здольны многа з'есці, ненасытны. *П. шчупак* ‖ *наз.* **пражэрлівасць**, -і, *ж.*

**ПРАЗ**, *прыназ. з В.* **1.** Цераз што-н., цераз унутранасць чаго-н. *Глядзець п. акно. Праязджаць п. вароты. Ісці п. лес.* **2.** Цераз які-н. час або мінуўшы якую-н. прастору. *Прыеду п. месяц.* **3.** Пры дапамозе каго-, чаго-н. *Паведаміць п. сяброў. Пісаць слова п. злучок.* **4.** Паўтараючы ў якія-н. прамежкі. *Ставіць тычкі п. пэўную адлегласць.* **5.** Па прычыне, па віне каго-, чаго-н. *Разышліся п. дробязь. П. цябе ўсе непрыемнасці.* **6.** Ужыв. пры абазначэнні дзеяння, якое суправаджаецца ці перарываецца іншым дзеяннем. *Усміхнуцца п. слёзы. Пачуць п. сон.*

**ПРАЗАІЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Празаічны, уласцівы прозе выраз у паэтычнай мове.

**ПРАЗАІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Пісьменнік, які піша прозай.

**ПРАЗАІЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* проза. **2.** Будзённы, абмежаваны дробнымі жыц-

цёвымі інтарэсамі. *Празаічныя турботы.* || *наз.* **празаі́чнасць**, -і, *ж.*

**ПРАЗВАНІ́ЦЬ**, -аню́, -о́ніш, -о́ніць; *зак.* **1.** Прагучаць (пра звон). *Празваніў званок.* **2.** *што* і *з інф.* Апавясціць звонам пра што-н. (разм.). *Празванілі антракт.* **3.** Правесці які-н. час звонячы. *Празваніў паўгадзіны — ніхто не адказвае.*

**ПРАЗВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Тое, што і *мянушка. Жартоўнае п.*

**ПРАЗВА́ЦЬ**, -заву́, -заве́ш, -заве́; -завём, -завяце́, -заву́ць; -заві́; -зва́ны; *зак., каго-што.* Даць мянушку. *Яго празвалі катом.* || *незак.* **празыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРАЗВІНЕ́ЦЬ** *гл.* звінець.

**ПРАЗЕ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Спецыяліст у клініцы, бальніцы, які займаецца анатаміраваннем трупаў. || *прым.* **празе́ктарскі**, -ая, -ае.

**ПРАЗЕ́КТАРСКАЯ**, -ай, *мн.* -ія, -іх, *ж.* Памяшканне ў бальніцы, дзе анатаміруюць трупы.

**ПРАЗІМАВА́ЦЬ** *гл.* зімаваць.

**ПРАЗМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Занадта вялікі, які перавышае ўсякую меру. *Празмерная цікаўнасць. Празмерна* (прысл.) *гаваркая.* || *наз.* **празме́рнасць**, -і, *ж.*

**ПРАЗО́РЛІВЕЦ**, -ліўца, *мн.* -ліўцы, -ліўцаў, *м.* (кніжн.). Празорлівы чалавек. || *ж.* **празо́рлівіца**, -ы, *мн.* -ы, -віц.

**ПРАЗО́РЛІВЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Здольны прадбачыць, praніклівы. *П. розум.* || *наз.* **празо́рлівасць**, -і, *ж.*

**ПРАЗО́РЦА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -аў. Чалавек, надзелены здольнасцю яснабачання.

**ПРАЗРЫ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прасвечваецца, прапускае праз сябе святло. *Празрыстая вадкасць. Празрыстая тканіна* (вельмі тонкая). **2.** *перан.* Яўны, які лёгка зразумець. *П. намёк. Празрыста* (прысл.) *намякнуць.* || *наз.* **празры́стасць**, -і, *ж.*

**ПРАЗЫВА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* Насіць імя, прозвішча, мянушку; звацца.

**ПРАЗЫВА́ЦЬ** *гл.* празваць.

**ПРАЗЯ́БЛЫ**, -ая -ае. Які моцна празяб, замёрз. *П. да касцей.*

**ПРАЗЯ́БНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -зя́б, -бла; *зак.* Моцна азябнуць. *П. на холадзе.*

**ПРАЗЯВА́ЦЬ** *гл.* зяваць.

**ПРАІЛЮСТРАВА́ЦЬ** *гл.* ілюстраваць.

**ПРАІНСТРУКТАВА́ЦЬ** *гл.* інструктаваць.

**ПРАІНТЭРВ'ЮІ́РАВАЦЬ** *гл.* інтэрв'юіраваць.

**ПРАІНФАРМАВА́ЦЬ** *гл.* інфармаваць.

**ПРАІСНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; *зак.* Пражыць, прабыць які-н. час. *На такую зарплату можна п. Старыя парадкі доўга не праіснуюць.*

**ПРАЙГРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ешся; *зак.* Апынуцца ў пройгрышы, прайграць у карты многа грошай. *П. ўшчэнт.* || *незак.* **прайграва́цца**, -раю́ся, -рае́шся, -рае́цца; -раёмся, -раяце́ся, -раю́цца.

**ПРАЙГРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што* і *без дап.* Пацярпець няўдачу ў гульні, спаборніцтве, спрэчках і пад. *П. матч. П. у спрэчцы.* **2.** *што.* Пазбавіцца чаго-н. у выніку азартнай гульні; прагуляць. *П. грошы.* **3.** *што* і *без дап.* Сыграць, выканаць. *П. пласцінку. Аркестр прайграў уверцюру.* **4.** Правесці які-н. час, іграючы на чым-н. *П. дзве гадзіны на раялі.* || *незак.* **прайграва́ць**, -раю́, -рае́ш, -рае́; -раём, -раяце́, -раю́ць (да 1—3 знач.).

**ПРАЙДЗІСВЕ́Т**, -а, *М* -ве́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., пагард.). Пранырлівы, хітры чалавек, прайдоха.

**ПРАЙДО́ХА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -до́се, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -до́х (разм.). Тое, што і *прайдзісвет.*

**ПРАЙМА́ЦЦА** *гл.* праняцца.

**ПРАЙМА́ЦЬ** *гл.* праняць.

**ПРАЙСЦІ́**, прайду́, про́йдзеш, про́йдзе; прайшо́ў, -шла́, -ло́; прайдзі́; про́йдзены; *зак.* **1.** Ступаючы, едучы, перамясціцца па якім-н. месцы або да якога-н. месца. *П. па мосце. П. да варот. П. наперад. Па рацэ прайшла баржа.* **2.** *што.* Пераадолець якую-н. адлегласць хадзьбой (а таксама пра некаторыя сродкі транспарту, пра пераадоленне дыстанцыі спартсменам). *П. некалькі крокаў. П. пехатой пятнаццаць кіламетраў. За гадзіну поезд прайшоў 70 км. Бягун добра прайшоў стаметроўку.* **3.** *што.* Перамяшчаючыся, накіроўваючыся куды-н., прамінуць, пакінуць ззаду. *П. сад* або *міма саду. Задумаўшыся, п. сваю хату.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Распаўсюдзіцца (пра чуткі, весткі і пад.). *Прайшла чутка аб яго прыездзе.* **5.** *перан., перад кім-чым,* а таксама са словамі «у думках», «ва ўяўленні» і пад.: мысленна ўзнікнуць, паўстаць ва ўяўленні. *У думках прайшло ўсё папярэдняе жыццё.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). З'явіцца і знікнуць (пра ўсмешку, мімічны рух і пад.). *Па твары прайшла ажыўленая ўсмешка.* **7.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра што-н. працяглае: пралегчы, працягнуцца. *Тут пройдзе чыгунка. Нафтаправод «Дружба» прайшоў па Беларусі.* **8.** Выпасці (пра ападкі). *Зранку прайшоў дождж.* **9.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Пра час, пра што-н., што было, працягвалася: мінуць, адысці. *Прайшло некалькі гадоў. Крыўда прайшла. Боль прайшоў.* **10.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Адбыцца, закончыцца з якім-н. вынікам. *Спектакль прайшоў з вялікім поспехам.* **11.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пранікнуць цераз што-н. (пра тое, што рухаецца, перасоўваецца, цячэ). *Цвік прайшоў наскрозь. Шафа прайшла ў дзверы. Чарніла прайшло цераз паперу.* **12.** *што.* Распрацаваць, апрацаваць, рухаючыся ў пэўным напрамку. *П. вугальны пласт. П. адзін пракос.* **13.** *што* або *праз што.* Прасоўваючыся, дасягаючы чаго-н., падвергнуцца чаму-н., атрымаць прызнанне, зацвярджэнне. *Дакументы прайшлі цераз рэгістрацыю. Праект прайшоў многа інстанцый.* **14.** *у што* або (*з В мн.*) *у каго-што.* Аказацца ў ліку прынятых, залічаных, зацверджаных. *П. ва ўніверсітэт па конкурсе.* **15.** *што.* Вывучыць, пазнаёміцца з чым-н. (разм.). *Вучні прайшлі буквар.* **16.** *што.* Выканаць якія-н. абавязкі, заданні, прызначэнні. *П. вайсковую службу. П. курс лячэння.* ◊ **Прайсці ў жыццё** — ажыццявіцца на справе. || *незак.* **прахо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. || *наз.* **прахо́джанне**, -я, *н.* (да 1—3, 12, 13, 15 і 16 знач.) *і* **прахо́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1—3 знач.). ◊ **Праходу не даваць** *каму* (разм., неадабр.) — назойліва прыставаць з чым-н.

**ПРАЙСЦІ́СЯ**, прайду́ся, про́дзешся, про́йдзецца; прайшо́ўся, -шла́ся, -ло́ся; прайдзі́ся; *зак.* **1.** Прайсці крыху або не спяшаючыся, зрабіць некалькі крокаў, прагуляцца. *П. па кабінеце.* **2.** Пратанцаваць (разм.). *П. ў танцы.* **3.** *па чым.* Зрабіць што-н. або падвергнуць якой-н. апрацоўцы; дакрануцца (у адпаведнасці са знач. наступнага назоўніка; разм.). *П. фуганкам па дошцы. Трэба яшчэ раз п. па рукапісе.* || *незак.* **прахо́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 знач.).

**ПРАКАЖО́НЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Хворы на пракаву. || *ж.* **пракажо́ная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых.

**ПРАКА́ЗА**, -ы, *ж.* Цяжкая скураная інфекцыйная хвароба, якая лічыцца звычайна невылечнай.

**ПРАКАЛО́ЦЬ**, -калю́, -ко́леш, -ко́ле; -калі́; -ко́латы; *зак., каго-што.* Колючы (*гл.* калоць[1]), зрабіць у чым-н. скразную адтуліну, праткнуць. *П. паперу шылам. П. шыну.* || *незак.* **прако́лваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **прако́лванне**, -я, *н. і* **прако́л**, -у, *м.* || *прым.* **прако́лачны**, -ая, -ае (спец.).

**ПРАКАЛУПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Калупаючы, зрабіць адтуліну ў чым-н. *П. ямку ў лёдзе.* **2.** і *без дап.* Калупаць некаторы час. || *незак.* **пракалу́пліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **пракалу́пваць**, -аю, -аеш, -ае. || *аднакр.* **пракалупну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́.

**ПРАКАМЕНЦІ́РАВАЦЬ** *гл.* каменціраваць.

**ПРАКАМПАСЦІ́РАВАЦЬ** *гл.* кампасціраваць.

**ПРАКАНАПА́ЦІЦЬ**, -а́чу, -а́ціш, -а́ціць; -а́чаны; *зак., што.* Канапацячы, заткнуць усе пазы, дзіркі ў чым-н. *П. лодку.* || *незак.* **праканапа́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАКАНСПЕКТАВА́ЦЬ** *гл.* канспектаваць.

**ПРАКАНСУЛЬТАВА́ЦЦА** *гл.* кансультавацца.

**ПРАКАНСУЛЬТАВА́ЦЬ** *гл.* кансультаваць.

**ПРАКАНТРАЛЯВА́ЦЬ** *гл.* кантраляваць.

**ПРАКАПА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Капаючыся, пранікнуць куды-н. *П. да вады.* **2.** *перан.* Правесці які-н. час, капаючыся ў чым-н. *П. ў архіве цэлы дзень.*

**ПРАКАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* -ко́паны; *зак., што.* **1.** Зрабіць што-н., капаючы ў даўжыню, у глыбіню. *П. канаву.*

2. Капаючы, прайсці наскрозь. *П. падземны ход.* **3.** Правесці які-н. час капаючы. *Пракапаў увесь дзень.* ‖ *незак.* **пракóпваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **пракóпванне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.) *і* **пракóпка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ПРАКАРМÍЦЦА** *гл.* карміцца.

**ПРАКАРМÍЦЬ** *гл.* карміць.

**ПРАКАРМЛЕ́ННЕ** *гл.* карміцца, карміць.

**ПРАКАРПÁЦЦА** *гл.* пракорпацца.

**ПРАКАРЭКЦÍРАВАЦЬ** *гл.* карэкціраваць.

**ПРАКАСÍЦЬ**, -кашý, -кóсіш, -кóсіць; -кóшаны; *зак., што.* **1.** Выкасіць вузкую паласу пасярод чаго-н. *П. дарожку.* **2.** Правесці які-н. час у касьбе. *Пракасілі да абеду.* ‖ *незак.* **пракóшваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **пракóшванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **пракóсны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПРАКÁТ**[1], -у, *М* -кáце, *м.* **1.** Тое, што і *пракатка. П. рэек.* **2.** Металічныя вырабы пэўнага профілю, атрыманыя шляхам пракаткі. *Выпуск пракату.* ‖ *прым.* **пракáтны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПРАКÁТ**[2], -у, *М* -кáце, *м.* Передача рухомай маёмасці ў часовае карыстанне за плату, а таксама само карыстанне. *Плаціць за п. каляскі. Бюро пракату.* ‖ *прым.* **пракáтны**, -ая, -ае.

**ПРАКАТÁЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* **1.** Тое, што і *пракаціцца* (у 3 знач.). *П. на машыне.* **2.** Пакатацца на працягу якога-н. часу. *П. на санках цэлы дзень.*

**ПРАКАТÁЦЬ**[1], -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што* (спец.). Падвергнуць пракатцы. *П. жалеза.* ‖ *незак.* **пракáтваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАКАТÁЦЬ**[2], -áю, -áеш, -áе; *зак., каго (што).* **1.** Тое, што і *пракаціць* (у 2 знач.). **2.** Пакатаць які-н. час. *П. дзве гадзіны дзяцей на лодцы.* ‖ *незак.* **пракáтваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАКÁТВАЦЬ** *гл.* пракатаць$^{1-2}$ *і* пракаціць.

**ПРАКÁТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Гарачая апрацоўка металу шляхам абціскання паміж вярчальнымі валамі ў асобных станах для надання яму патрэбнай формы, профілю. *П. труб.* ‖ *прым.* **пракáтны**, -ая, -ае. *П. стан.*

**ПРАКÁТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па пракатцы.

**ПРАКАЦÍЦЦА**, -качýся, -кóцішся, -кóціцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Перамясціцца куды-н. коцячыся. *Сляза пракацілася па твары.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Раздацца (пра раскацістыя гукі). *Пракаціўся гром.* **3.** Праехацца для забавы, з'ездзіць куды-н. ненадоўга. *П. на самакаце.* ‖ *незак.* **пракóчвацца**, -аецца (да 1 і 2 знач.).

**ПРАКАЦÍЦЬ**, -качý, -кóціш, -кóціць; -кóчаны; *зак.* **1.** *што.* Перамясціць коцячы. *П. бочку.* **2.** *каго.* Правесці для забавы. *П. на машыне.* **3.** Хутка праехаць (разм.). *Нехта пракаціў на веласіпедзе.* ◊ **Пракаціць на вараных** (уст.) — не выбраць, праваліць на выбарах [першапачаткова, пры балаціроўцы шарамі, пакласці чорныя, нявыбарчыя шары]. ‖ *незак.* **пракáтваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 3 знач.) *і* **пракóчваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ПРАКАЧÁЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разгладзіцца качалкай, качалкамі. *Бялізна добра пракачалася.* **2.** Правесці які-н. час лежачы, качаючыся. *П. на канапе паўдня.*

**ПРАКÁШЛЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; *зак.* **1.** *што.* Кашляючы, ачысціць горла ад чаго-н. *П. макроту.* **2.** Падвергнуцца прыступам кашлю на працягу якога-н. часу. *Пракашляў усю ноч.* ‖ *незак.* **пракáшліваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАКВÁСІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áсіцца; *зак.* Скіснуць (у 1 знач.). ‖ *незак.* **праквáшвацца**, -аецца.

**ПРАКВÁСІЦЬ**, -áшу, -áсіш, -áсіць; -áшаны; *зак., што.* Даць скіснуць (у 1 знач.), падвергнуць квашанню. *П. капусту.* ‖ *незак.* **праквáшваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАКÍДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што.* Правесці які-н. час, кідаючы што-н. *Паўдня пракідаў гной у талацэ.*

**ПРАКÍНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -кíнь; -нуты; *зак., што* (разм.). **1.** Кінуць паміж чым-н. *П. вяроўку паміж сукоў.* **2.** Злічыць на лічыльніках. *П. на лічыльніках.* **3.** Кідаючы, не трапіць у цэль. *П. шайбу.* ‖ *незак.* **пракíдваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАКІПЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -піць; *зак.* **1.** Прабыць у стане кіпення які-н. час. *Вада пракіпела дваццаць мінут.* **2.** Добра пакіпець, даходзячы да гатоўнасці. *Суп пракіпеў.*

**ПРАКІПЯЦÍЦЬ**, -ячý, -яцíш, -яцíць; -яцíм, -еціцé, -яцяць; -ячóны; *зак., што.* Даць добра пракіпець. *П. булён.*

**ПРАКÍСЛЫ**, -ая, -ае. Сапсаваны ў выніку браджэння або ўласцівы чаму-н. сапсаванаму. *Пракіслае піва.*

**ПРАКÍСНУЦЬ** *гл.* кіснуць.

**ПРАКЛАДÁННЕ** *і* **ПРАКЛÁДВАННЕ** *гл.* пракласці *і* пралажыць.

**ПРАКЛАДÁЦЬ** *і* **ПРАКЛÁДВАЦЬ** *гл.* пракласці *і* пралажыць.

**ПРАКЛÁДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* **1.** *гл.* пракласці, пралажыць. **2.** *мн.* -і, -дак. Прадмет, пракладзены паміж чым-н. *Кардонная п.* ‖ *прым.* **праклáдачны**, -ая, -ае.

**ПРАКЛАДНЫ́**, -áя, -óе. Які з'яўляецца пракладкай, укладзены паміж чым-н. *Пракладная вата.*

**ПРАКЛАМАВÁЦЬ**, -мýю, -мýеш, -мýе; -мýй; -мавáны; *зак. і незак., што* (кніжн.). Урачыста аб'явіць (аб'яўляць), абвясціць (абвяшчаць). ‖ *наз.* **пракламавáнне**, -я, *н.*

**ПРАКЛАМÁЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Агітацыйны лісток палітычнага зместу. ‖ *прым.* **пракламацы́йны**, -ая, -ае.

**ПРАКЛÁСЦІ**, -ладý, -ладзéш, -ладзé; -ладзём, -ладзяцé; -ладýць; -лáў, -лáла; -ладзі; -лáдзены; *зак., што.* **1.** Правесці, зрабіць (дарогу, шлях і пад.). *П. шашу. П. газаправод. П. сабе дарогу* (таксама перан.: дабіцца добрага становішча ў жыцці). *П. шлях, дарогу каму-, чаму-н.* (таксама перан.: пасадзейнічаць каму-, чаму-н. у чым-н., стварыць умовы для развіцця чаго-н.). *П. курс караблю* (вычарціць на карце). **2.** Укласці што-н. паміж чым-н. *П. паперу паміж талеркамі* (або *талеркі паперамі*) *пры ўпакоўцы.* ‖ *незак.* **пракладáць**, -áю, -áеш, -áе *і* **праклáдваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пракладáнне**, -я, *н.*, **праклáдванне**, -я, *н. і* **праклáдка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.*

**ПРАКЛЕ́ІЦЬ**, -éю, -éіш, -éіць; -éены; *зак.* **1.** *што.* Прамазаць слоем клею. **2.** Правесці які-н. час клеючы. ‖ *незак.* **праклéйваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **праклéйка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **праклéйванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПРАКЛЁН**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Крайняе і беспаваротнае асуджэнне са злавесным прадракáннем, пажаданнем (высок.). *П. вайне.* **2.** Гнеўнае, лаянкавае слова. *Наўздагон сыпаліся праклёны.* **3.** Ужыв. як выклічнік для выказвання гневу, крайняга раздражнення (разм.).

**ПРАКЛІНÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак., каго-што.* **1.** *гл.* пракляясці. **2.** Лаяць, асуджаць (разм.). *Праклінаю сябе за непаваротлівасць.*

**ПРАКЛЯСЦÍ**, -лянý, -лянéш, -лянé; -лянём, -ленецé, -лянýць; -ляў, -лялá, -лó; -лянí; -ляты; *зак., каго-што.* **1.** Падвергнуць праклёну (высок.). *П. здрадніка.* **2.** Моцна вылаяць, выказваючы гнеў, злосць, абурэнне. *П. усё на свеце.* ‖ *незак.* **праклінáць**, -áю, -áеш, -áе.

**ПРАКЛЯ́ТЫ**, -ая, -ае. Які выклікае праклён, ненавісны. *П. вораг. Праклятая хвароба.*

**ПРАКÓЛ**, -у, *м.* **1.** *гл.* пракалоць. **2.** *мн.* -ы, -аў. Скразная адтуліна, зробленая чым-н. калючым. *Вушы з праколамі. П. на білеце* (кампосцерам). **3.** *перан.* Хібы ў працы (разм.). *П. маркетолага дорага абышоўся прадпрыемству.*

**ПРАКÓЛВАННЕ** *гл.* пракалоць.

**ПРАКÓЛВАЦЬ** *гл.* пракалоць.

**ПРАКÓПВАННЕ** *і* **ПРАКÓПКА** *гл.* пракапаць.

**ПРАКÓПВАЦЬ** *гл.* пракапаць.

**ПРАКÓРМ** *гл.* карміцца, карміць.

**ПРАКÓРПАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **ПРАКАРПÁЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* (разм.). Правесці які-н. час, марудна робячы што-н., корпаючыся (карпаючыся). *Пракорпалася ў агародзе цэлы дзень.*

**ПРАКÓС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пракошаная паласа шырынёй на размах касы, а таксама града скошанай травы. *Шырокі п.* ‖ *прым.* **пракóсны**, -ая, -ае.

**ПРАКÓСНЫ** *гл.* пракасіць, пракос.

**ПРАКÓЎЗАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Правесці які-н. час коўзаючыся. *Паўдня пракоўзаўся на каньках.*

**ПРАКÓЧВАЦЦА** *гл.* пракаціцца.

**ПРАКÓЧВАЦЬ** *гл.* пракаціць.

**ПРАКÓШВАННЕ** *гл.* пракасіць.

**ПРАКÓШВАЦЬ** *гл.* пракасіць.

**ПРАКРА́СЦІСЯ**[1], -ра́дуся, -ра́дзешся, -ра́дзецца; -ра́уся, -ра́лася; *зак.* Прабрацца куды-н. крадучыся, ціха. *П. ў пакой. Занепакоенасць пракралася ў душу* (перан.). ‖ *незак.* **прakрада́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **прakра́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАКРА́СЦІСЯ**[2], -ра́дуся, -ра́дзешся, -ра́дзецца; -ра́ўся, -ра́лася; *зак.* (разм.). Папасціся пры сістэматычным крадзяжы. *Пракраўся і трапіў пад суд.*

**ПРАКРУ́СТАЎ**, -тава. У выразе: **пракрустава ложа** (кніжн.) — мерка, пад якую сілком падганяюць, прыстасоўваюць што-н. [ад імя міфічнага старажытнагрэчаскага разбойніка Пракруста, які сваім ахвярам абсякаў ці выцягваў ногі па даўжыні свайго ложа].

**ПРАКРУХМА́ЛІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* Насыціцца крухмалам. ‖ *незак.* **пракрухма́львацца**, -аецца.

**ПРАКРУХМА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Насыціць крухмалам. *П. манжэты.* ‖ *незак.* **пракрухма́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАКРУЦІ́ЦЬ**, -учу́, -у́ціш, -у́ціць; -у́чаны; *зак., што.* **1.** Тое, што і *прасвідраваць. П. дзірку.* **2.** Круцячы, прывесці ў рух. *П. педалі веласіпеда.* **3.** Круцячы, прапусціць цераз што-н. (разм.). *П. мяса цераз мясарубку.* **4.** Прывёўшы ў кругавы рух, даць (якому-н. устройству) зрабіць пэўную колькасць абаротаў. *П. пласцінку, фільм* (разм.). **5.** Правесці які-н. час, круцячы што-н. ‖ *незак.* **пракру́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пракру́чванне**, -я, *н.*

**ПРАКРЫЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *зак.* **1.** Абазваццa крыкам. *Пракрычала дзіця.* **2.** *што* і *без дап.* Вымавіць, гучна крычучы. *П. «ура».* **3.** Правесці які-н. час крычучы. ◊ **Пракрычаць вушы** *каму пра каго-што, аб кім-чым* (разм., неадабр.) — надакучыць бясконцымі расказамі, нястрымнай балбатнёй пра што-н.

**ПРАКРЭ́СЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Правесці рысу ў чым-н., падкрэсліваць на ўсю даўжыню. *П. графу ў анкеце* (паколькі звестак па гэтай графе няма). ‖ *незак.* **пракрэ́сліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРА́КТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Работнік, які добра вывучыў сваю справу на практыцы. **2.** Практычны, дзелавы чалавек.

**ПРА́КТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Матэрыяльная мэтанакіраваная дзейнасць людзей па прымяненні чаго-н. у жыцці; вопыт. *Не адрываць тэорыю ад практыкі. П. — рухаючая сіла пазнання.* **2.** Прыёмы, навыкі, звычайныя спосабы якой-н. работы. *П. складання слоўнікаў.* **3.** Скарыстанне і замацаванне на справе ведаў, атрыманых тэарэтычным шляхам. *Педагагічная п. студэнтаў.* **4.** Работа, заняткі па спецыяльнасці як аснова вопыту, умення. *П. выхавання дзяцей. Без практыкі цяжка авалодаць чужой мовай.* **5.** Пра работу ўрача (або юрыста) па сваёй спецыяльнасці (звычайна па-за ўстановай; уст.). *Урач з вялікай практыкай* (з вялікай колькасцю пацыентаў). *Адвакат са шматгадовай практыкай.*

**ПРАКТЫКАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* практыкавацца, практыкаваць. **2.** *мн.* -і, -яў. Заданне, якое выконваецца тым, хто практыкуецца ў чым-н., занятак для набыцця, удасканальвання якіх-н. навыкаў. *Пісьмовыя практыкаванні. Практыкаванні па музыцы.*

**ПРАКТЫКАВА́ЦЦА**, -ку́юся, -ку́ешся, -ку́ецца; -ку́йся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прымяняцца на практыцы. *Там практыкуецца гадоўля мерыносных авечак.* **2.** Засвойваць прыёмы якой-н. справы, набываць практыку ў чым-н. *П. ў стральбе. П. па авалоданні французскай мовай.* ‖ *зак.* **напрактыкава́цца**, -ку́юся, -ку́ешся, -ку́ецца; -ку́йся (да 2 знач.). ‖ *наз.* **практыкава́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ПРАКТЫКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *незак.* **1.** *што.* Прымяняць на практыцы (кніжн.). *П. новую форму работы.* **2.** Праходзіць практыку (у 3 знач.). *Студэнты практыкуюць у клініцы.* **3.** *каго-што.* Пастаянннай работай прывіваць якія-н. навыкі, прывучаць рабіць што-н. *П. сваю памяць.* **4.** Мець практыку (у 5 знач.; уст.). *У Полацку практыкуюць мінскія ўрачы.* ‖ *наз.* **практыкава́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ПРАКТЫКА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая праходзіць практыку (у 3 знач.), рыхтуючыся да дзейнасці ў якой-н. галіне. ‖ *ж.* **практыка́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **практыка́нцкі**, -ая, -ае.

**ПРА́КТЫКУМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* У вышэйшых навучальных установах: курс практычных заняткаў па якім-н. вучэбным прадмеце. *П. па фізіцы.*

**ПРАКТЫЦЫ́ЗМ**, -у, *м.* Дзелавы падыход, практычныя адносіны да чаго-н. *Гаспадарчы п. Вузкі п.* (які пагарджае тэорыяй або інтарэсамі агульнай справы).

**ПРАКТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да практыкі (у 1 знач.). *Практычныя вывады.* **2.** Які з'яўляецца прымяненнем ведаў на справе, на практыцы. *Практычнае навучанне.* **3.** Патрэбны для практыкі, які прывівае канкрэтныя навыкі, уменне. *Практычная школа акцёрскага майстэрства.* **4.** Які мае адносіны да жыццёвага вопыту, рэальных патрэбнасцей. *Нічога не разумець у практычным жыцці.* **5.** Дзелавіты, які ўмее разбірацца ў практычных, жыццёвых справах. *П. чалавек.* **6.** Выгадны, зручны ў справе, эканомны. *П. метад.* **7.** Па сутнасці, на справе. *Практычна* (прысл.) *здаровы.* ‖ *наз.* **практы́чнасць**, -і, *ж.* (да 4—6 знач.).

**ПРАКУ́ДА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -дзе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -ку́д (разм.). Ахвотнік (ахвотніца) да свавольстваў, розных штук; гарэза.

**ПРАКУ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* (разм.). Сваволіць, штукарыць; гарэзаваць. ‖ *зак.* **напраку́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць.

**ПРАКУКАВА́ЦЬ** *гл.* кукаваць.

**ПРАКУКАРЭ́КАЦЬ** *гл.* кукарэкаць.

**ПРАКУРАТУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Дзяржаўны орган, які наглядае за выкананнем законаў і законнасці і прыцягвае да адказнасці тых, хто ўчыняе злачынствы. **2.** *зб.* Работнікі пракурорскага нагляду.

**ПРАКУРО́ДЫМЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* Насыціцца куродымам, дымам. *Сцены пракуродымелі.*

**ПРАКУРО́ДЫМІЦЦА**, -млюся, -мішся, -міцца; *зак.* Тое, што і *пракуродымець. Хата пракуродымілася.* ‖ *незак.* **праку-ро́дымлівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАКУРО́ДЫМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак., каго-што.* Насыціць куродымам, дымам. *П. пакой.* ‖ *незак.* **пра-куро́дымліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАКУРО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Асоба, якая ажыццяўляе дзяржаўны нагляд за дакладным выкананнем законаў. *П. раёна.* **2.** Дзяржаўны абвінаваўца на судзе. ‖ *прым.* **пракуро́рскі**, -ая, -ае. *П. нагляд.*

**ПРАКУРЫ́ЦЦА**, -уру́ся, -у́рышся, -у́рыцца; *зак.* (разм.). Насыціцца дымам ад курэння. *Лёгкія пракурыліся.* ‖ *незак.* **праку́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАКУРЫ́ЦЬ**, -уру́, -у́рыш, -у́рыць; -у́раны; *зак., што.* **1.** Насыціць тытунёвым дымам. *П. хату.* **2.** Зрасходаваць на курэнне. *П. многа грошай.* **3.** Правесці які-н. час курачы. *Усю ноч пракурыў.* ‖ *незак.* **пра-ку́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАКУ́С**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рана ад укусу, пракушанае месца. *Глыбокі п.*

**ПРАКУСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што.* Пракусіць у многіх месцах.

**ПРАКУСІ́ЦЬ**, -ушу́, -у́сіш, -у́сіць; -у́шаны; *зак., што.* Кусаючы, праткнуць наскрозь. *П. губу да крыві.* ‖ *незак.* **праку́сваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАЛАЖЫ́ЦЬ**, -ажу́, -о́жыш, -о́жыць; -о́жаны; *зак., што.* Тое, што і *пракласці. П. дарогу праз лес.* ◊ **Пралажыць (пракласці) сабе дарогу** — пераадольваючы цяжкасці, дасягнуць чаго-н. ‖ *незак.* **праклада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **пракла́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **праклада́нне**, -я, *н.*, **пракла́дванне**, -я, *н. і* **пракла́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.*

**ПРАЛА́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вузкая адтуліна, праз якую можна пралезці. *Зрабіць п. у плятні.*

**ПРАЛА́ЗА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -ла́з (разм.). Пранырлівы чалавек, прайдзісвет, спрытнюга.

**ПРАЛА́ЗІЦЬ**[1] *гл.* пралезці.

**ПРАЛА́ЗІЦЬ**[2], -а́жу, -а́зіш, -а́зіць; *зак.* Правесці які-н. час лазячы. *П. увесь дзень па гарах.*

**ПРАЛАМА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ло́міцца; *зак.* **1.** Ламаючыся, утварыць у сабе адтуліну, дзірку. *Лёд быў тонкі і праламаўся.* **2.** Змяніць свой напрамак пры пераходзе з аднаго фізічнага асяроддзя ў другое (спец.). *Сонечны прамень праламаў-*

*ся ў прызме.* ‖ *незак.* **пралóмлівацца**, -аецца (да 1 знач.), **пралóмвацца**, -аецца (да 1 знач.) *і* **праламля́цца**, -я́ецца (да 2 знач.). ‖ *наз.* **праламлéнне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ПРАЛАМА́ЦЬ**, -амлю́, -óміш, -óміць; -амі́; -амáны; *зак., што.* **1.** Зрабіць дзірку, пралом, прабіць наскрозь. *П. дзірку. П. чэрап.* **2.** Змяніць напрамак пры пераходзе з аднаго фізічнага асяроддзя ў другое. *Прызма праламала сонечны прамень.* ‖ *незак.* **пралóмліваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.), **пралóмваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.) *і* **праламля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 2 знач.). ‖ *наз.* **пралóм**, -у, *м.* (да 1 знач.).

**ПРАЛАНГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гавáны; *зак.* і *незак., што* (афіц.). Прадоўжыць (прадаўжаць) тэрмін дзеяння чаго-н. *П. дагавор.* ‖ *наз.* **пралангáцыя**, -і, *ж.*

**ПРАЛАПАТА́ЦЬ** *гл.* лапатаць.

**ПРАЛЕ́ГЧЫ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ля́жа, -ля́гуць; -лёг, -ляглá, -лó; *зак.* Размясціцца, легчы, прайсці, працягнуцца ўздоўж чаго-н. *Праз лес праляжа дарога.* ‖ *незак.* **праляга́ць**, -áе.

**ПРАЛЕ́ЖАЦЬ** *і* **ПРАЛЕ́ЖВАЦЬ** *гл.* праляжаць.

**ПРАЛЕ́ЗЦІ**, -зу, -зеш, -зе; -лéзь; *зак.* **1.** Улазячы, прасоўваючыся, з цяжкасцю пранікнуць куды-н. *П. цераз вузкі праход.* **2.** *перан.* Абманам і хітрасцю пранікнуць куды-н., дабіцца добрага, выгаднага становішча (разм.). *П. ў высокія чыны.* **3.** Улезці, прасунуцца. *Шафа тут не пралезе.* ‖ *незак.* **праля́зіць**, -я́жу, -я́зіш, -я́зіць.

**ПРАЛЕПЯТА́ЦЬ** *гл.* лепятаць.

**ПРАЛЕ́СКА**, -і, *ДМ* -лéсцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Травяністая расліна з сіне-блакітнымі кветкамі, якія зацвітаюць адразу пасля раставання снегу.

**ПРАЛЕТА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Наёмны рабочы, пазбаўлены сродкаў вытворчасці. ‖ *ж.* **пралетáрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **пралетáрскі**, -ая, -ае. *П. інтэрнацыяналізм.*

**ПРАЛЕТАРЫЯ́Т**, -у, *М* -я́це, *м.* Клас пралетарыяў. ‖ *прым.* **пралетáрскі**, -ая, -ае.

**ПРАЛЁТ**[1], -а, *М* -лёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адкрытая прастора паміж чым-н. *Шырокі п. вуліцы. Аконны п.* **2.** Адлегласць паміж суседнімі пунктамі апоры ў збудаваннях. *Мост на два пралёты.* **3.** Участак чыгуначнага шляху паміж станцыямі; перагон (разм.). **4.** Свабодны прамежак у лесвічнай клетцы шматпавярховага будынка. ‖ *прым.* **пралётны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПРАЛЁТ**[2] *гл.* праляцець.

**ПРАЛЁТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Тое, што і *пралятаць*[1].

**ПРАЛЁТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Лёгкі чатырохколавы экіпаж. *Рамізніцкая п.* ‖ *прым.* **пралётачны**, -ая, -ае.

**ПРАЛЁТНЫ**[1], -ая, -ае. Пра птушак: від, які паяўляецца вясной або восенню пры пералёце.

**ПРАЛЁТНЫ**[2] *гл.* пралёт[1].

**ПРАЛІ́К**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Памылка, промах, няўдача. *Бачыць не толькі поспехі, а і пралікі.*

**ПРАЛІ́Ў**, -ліва, *мн.* -лі́вы, -лі́ваў, *м.* Вузкая водная прастора паміж двума морамі, паміж вострвам і мацерыком і пад. *Керчанскі п.* ‖ *прым.* **пралі́ўны**, -ая, -ае.

**ПРАЛІЎНЫ́**, -áя, -óе. Пра вельмі моцны дождж. *П. дождж.*

**ПРАЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -льéцца *і* -ліéцца; -лі́ўся, -лілáся, -лóся; *зак.* Пацячы, паліцца. *Праліўся дождж. Колькі там слёз пралілося* (перан.; высок.). ‖ *незак.* **праліва́цца**, -áецца.

**ПРАЛІ́ЦЬ**, -лью́, -льéш, -льé; -льём, -льяцé, -лью́ць *і* -лію́, -ліéш, -ліé; -ліём, -ліяцé, -лію́ць; -лі́ў, -лілá, -лó; -лí; -лі́ты; *зак., што.* **1.** Тое, што і *разліць* (у 1 знач.). *П. ваду на падлогу. П. чыю-н. кроў* (перан.: забіць каго-н.; высок.). ‖ *незак.* **праліва́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **праліццё**, -я́, *н.* (да 1 знач.; высок.).

**ПРАЛІЧЫ́ЦЦА**, -ічу́ся, -і́чышся, -і́чыцца; *зак.* **1.** Памыліцца ў падліках. *П. на сто рублёў.* **2.** Памыліцца ў меркаваннях, планах. *Вораг праалічыўся.* ‖ *незак.* **пралі́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРА́ЛЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Жанчына, якая займаецца ручным прадзеннем.

**ПРАЛО́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Уступная частка літаратурнага, тэатральнага або музычнага твора. ‖ *прым.* **пралóгавы**, -ая, -ае.

**ПРАЛО́М**, -у, *м.* **1.** *гл.* праламаць. **1.** *мн.* -ы, -аў. Адтуліна, праламанае месца. *Праломы ў сценах.* ‖ *прым.* **пралóмны**, -ая, -ае.

**ПРАЛО́МВАЦЦА** *і* **ПРАЛО́МЛІВАЦЦА** *гл.* праламацца.

**ПРАЛО́МВАЦЬ** *і* **ПРАЛО́МЛІВАЦЬ** *гл.* праламаць.

**ПРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з мыццём бялізны. *П. парашок. Пральная машына.*

**ПРА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Памяшканне, а таксама грамадскае прадпрыемства для мыцця бялізны. *Фабрыка-п.*

**ПРАЛЯГА́ЦЬ** *гл.* пралéгчы.

**ПРАЛЯЖА́ЦЬ**, -жу́, -жы́ш, -жы́ць; -жы́м, -лежыцé, -жáць; -жы́ *і* **ПРАЛЕ́ЖАЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -лéж; *зак.* **1.** Прабыць які-н. час лежачы. *П. увесь дзень у ложку.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прабыць які-н. час у адным і тым жа становішчы, без руху, без выкарыстання. *Рукапіс праляжаў (пралежаў) паўгода ў выдавецтве.* **3.** *што.* Атрымаць пролежні на якой-н. частцы цела ад доўгага ляжання (разм.). *П. бакі.* ‖ *незак.* **пралéжваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАЛЯТА́ЦЬ**[1], -áю, -áеш, -áе; *зак.* Правесці які-н. час лятаючы. *П. на самалёце цэлы дзень.*

**ПРАЛЯТА́ЦЬ**[2] *гл.* праляцець.

**ПРАЛЯЦЕ́ЦЬ**, -ляч́у, -ляці́ш, -ляці́ць; -ляці́м, -лецíцé, -ляця́ць; -ляці́; *зак.* **1.** Лецячы, перамясціцца на якую-н. адлегласць. *П. семсот кіламетраў.* **2.** *што.* Лецячы, прамінуць што-н. *Самалёт праляцеў горы.* **3.** Хутка праехаць, прайсці, мінуць (разм.). *Праляцеў кур'ерскі поезд. Незаўважна праляцеў адпачынак.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Мільгануць, пранесціся (разм.). *Маланкай праляцела думка.* ‖ *незак.* **пралята́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **пралёт**, -у, *М* -лёце, *м.* (да 1 знач.).

**ПРАМ...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач.: 1) які мае адносіны да прамысловасці, напр., *прамтавары;* 2) які мае адносіны да промыслу, напр., *прамкааперацыя.*

**ПРА́МА**. **1.** *прысл.* Па прамой лініі, у прамым напрамку. *Прайсці п.* **2.** *прысл.* Зараз жа, непасрэдна, адразу. *Пачаць гаварыць п. з парога. Трапіць п. ў цэль.* **3.** *прысл.* Адкрыта, шчыра. *Адказаць п.* **4.** *часц.* У спалучэнні з прыназоўнікам надае ім большую дакладнасць і канкрэтнасць; проста. *Сустрэцца з кім-н. п. ў дзвярах.*

**ПРАМА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) з прамым (у 1 знач.), напр.: *прамабортны, прамадзюбы, прамазубы, прамакрылы;* 2) прамы (у 1 знач.), напр.: *прамавугольнік, прамаідучы, праманакіраваны, прамарослы.*

**ПРАМАВУГО́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прамавугольны чатырохвугольнік.

**ПРАМАВУГО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае прамы вугал ці прамыя вуглы.

**ПРАМА́ЗАЦЬ**[1], -мáжу, -мáжаш, -мáжа; -мáж; -мáзаны; *зак., што.* Усюды старанна змазаць, намазаць. *П. усе часткі машыны.* ‖ *незак.* **прамáзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАМА́ЗАЦЬ**[2] *гл.* мазаць[2].

**ПРАМАКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **прамакальная папера** — папера, якая ўбірае ў сябе вільгаць і ўжыв. для высушвання напісанага чарнілам.

**ПРАМАКА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (разм.). Прамакальная папера.

**ПРАМАКА́ЦЬ**[1], -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *гл.* прамокнуць. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прапускаць цераз сябе вільгаць, сырасць. *Прарызінены плашч не прамакае.*

**ПРАМАКА́ЦЬ**[2] *гл.* прамакнуць.

**ПРАМАКНУ́ЦЬ**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; *зак., што.* Высушыць (напісанае чарнілам) спецыяльнай мяккай паперай, якая лёгка ўбірае ў сябе вільгаць. ‖ *незак.* **прамака́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **прамакáнне**, -я, *н.*

**ПРАМАЛІНЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які размешчаны, ідзе па прамой лініі. *П. рух.* **2.** *перан.* Шчыры і прамы, але пазбаўлены неабходнай гібкасці; аднабаковы. *П. чалавек. П. адказ. Дзейнічаць прамалінейна* (прысл.). ‖ *наз.* **прамалінéйнасць**, -і, *ж.*

**ПРАМАРГА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што* (разм.). Празяваць, упусціць. *П. выгадны выпадак.*

**ПРАМАРМЫТА́ЦЬ**, -мычу́, -мы́чаш, -мы́ча; -мычы́; *зак., што* (разм.). Сказаць ціха і неразборліва, вымавіць мармычачы.

**ПРАМАРО́ЗІЦЬ**, -óжу, -óзіш, -óзіць; -óжаны; *зак., каго-што.* **1.** Даць прамерзнуць наскрозь, замарозіць поўнасцю. *П. рыбу.* **2.** Пратрымаць на марозе, на холадзе

наўскач, скачкамі якую-н. адлегласць, цераз што-н. або мінуўшы што-н. *Праскакалі коннікі.* **2.** Правесці які-н. час скачучы.

**ПРАСКА́КВАЦЬ** *гл.* праскочыць.

**ПРАСКВА́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -рыцца; *зак.* Стаць гатовым у выніку сквярання. *Сала прасквары́лася.* ‖ *незак.* **прасква́рвацца**, -аецца.

**ПРАСКВА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* **1.** Скварачы, давесці да гатоўнасці. *П. сала.* **2.** Правесці які-н. час, скварачы што-н. *За дзесяць мінут прасквáрыла сала.* ‖ *незак.* **прасква́рваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАСКЛАНЯ́ЦЬ** *гл.* скланяць.

**ПРАСКО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак.* **1.** *што.* Хутка прабегчы міма чаго-н. *Каля нас праскочылі дзеці. Поезд праскочыў паўстанак.* **2.** Пранікнуць, хутка прабрацца куды-н. праз якія-н. перашкоды (разм.). *П. у дзверы.* **3.** Лёгка прайсці, упасці праз якую-н. адтуліну. *Манета праскочыла ў шчыліну.* ‖ *незак.* **праска́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАСКРЭ́БЦІ**, -рабу́, -рабе́ш, -рабе́; -рабём, -рабяце́, -рабу́ць; -ро́б, -рэ́бла; -рабі́; -рэ́бены; *зак., што.* Скрабучы, зрабіць у чым-н. адтуліну. *Мышы праскрэблі падлогу.* ‖ *незак.* **праскраба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **праскрэ́бваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРА́СЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Частка агароджы ад слупа да слупа. ‖ *прым.* **пра́славы**, -ая, -ае.

**ПРАСЛА́БІЦЬ** *гл.* слабіць.

**ПРАСЛА́ВІЦЦА**, -ла́ўлюся, -ла́вішся, -ла́віцца; *зак.* Стаць вядомым, славутым. *П. подзвігамі.* ‖ *незак.* **праслаўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **праслаўле́нне**, -я, *н.*

**ПРАСЛА́ВІЦЬ**, -ла́ўлю, -ла́віш, -ла́віць; -ла́ўлены; *зак., каго-што.* Зрабіць вядомым, славутым. *Гераічныя пералёты праславілі савецкіх лётчыкаў.* ‖ *незак.* **праслаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **праслаўле́нне**, -я, *н.*

**ПРАСЛАВУ́ТЫ**, -ая, -ае (іран.). Шырока вядомы, які нашумеў. *Праславутыя лятаючыя талеркі.* ‖ *наз.* **праславу́тасць**, -і, *ж.*

**ПРАСЛАІ́ЦЬ**, -лаю́, -ло́іш, -ло́іць; -ло́ены; *зак., што чым.* Пракласці слаямі чаго-н. *П. пірожнае крэмам.* ‖ *незак.* **прасло́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прасло́йванне**, -я, *н. і* **прасло́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.* ‖ *прым.* **прасло́ечны**, -ая, -ае.

**ПРАСЛЕ́ДАВАЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Той, хто праследуе каго-н. ‖ *ж.* **праcле́давацельніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПРАСЛЕ́ДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; *зак.* **1.** *каго (што).* Гнацца за кім-н., каб дагнаць, знішчыць. *П. звера. П. ворага.* **2.** *каго-што.* Учыняць ганенні, прыгнятаць. *П. перадавых дзеячаў культуры.* ‖ *наз.* **праcле́даванне**, -я, *н.*

**ПРАСЛІЗНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** Прайсці непрыметна куды-н. (разм.). *П. у дзверы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Слізгаючыся, прайсці, праскочыць праз што-н., паміж чым-н. *Некалькі зярнят праслізнула праз пальцы.* ‖ *незак.* **праслі́згваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАСЛО́ЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.* **1.** *гл.* праслаіць. **2.** *мн.* -і, -ло́ек. Тонкі слой, палоска паміж слаямі чаго-н. *Праслойкі іншага колеру ў белым мармуры.* **3.** *мн.* -і, -ло́ек, *перан.* Грамадская група, частка грамадства, арганізацыі, якая вызначаецца якімі-н. асаблівасцямі. *Сацыяльная п.*

**ПРАСЛУЖЫ́ЦЬ**, -ужу́, -у́жыш, -у́жыць; *зак.* Прабыць які-н. час служачы, у дзеянні, карыстанні. *П. пятнаццаць гадоў. Боты праслужылі тры сезоны.*

**ПРАСЛУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *гл.* слухаць. **2.** *каго-што.* Выслухаць ад пачатку да канца. *П. оперу. П. курс лекцый.* **3.** *каго-што.* Вызначыць на слых стан чаго-н. (спец.). *П. лёгкія.* **4.** *што.* Слухаючы, не ўспрыняць, не пачуць (разм.). *Баяцца, каб не п. галоўнае.* **5.** Выведаць па чутках, размовах. *П. аб прыездзе артыстаў.* **6.** *каго-што.* Правесці які-н. час слухаючы. ‖ *незак.* **праслу́хваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2—5 знач.); *наз.* **праслу́хванне**, -я, *н. і* **праслухо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2—5 знач.); *наз.* **праслухо́ўванне**, -я, *н.*

**ПРАСЛЯЗІ́ЦЦА**, -яжу́ся, -язі́шся, -язі́цца; -язі́мся, -езіце́ся, -язя́цца; *зак.* Заплакаць ад прыліву пачуццяў. *П. пры развітанні.*

**ПРАСМА́ЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -жыцца; *зак.* У выніку смажання прыйсці ў стан поўнай гатоўнасці. *Мяса прасмажылася.* ‖ *незак.* **прасма́жвацца**, -аецца.

**ПРАСМА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* **1.** Поўнасцю падсмажыць. *П. грыбы.* **2.** Правесці які-н. час, смажачы што-н. *Цэлую гадзіну прасмажыла бульбу.* ‖ *незак.* **прасма́жваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАСМАЛІ́ЦЬ**[1], -алю́, -о́ліш, -о́ліць; -о́лены; *зак., што.* Пакрыць, насыціць смалой. *П. лодку.* ‖ *незак.* **прасмо́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАСМАЛІ́ЦЬ**[2], -алю́, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены; *зак., што* (разм.). **1.** Прапаліць чым-н. наскрозь. *П. папяросай кашулю.* **2.** Ачысціць агнём. *П. комін.* **3.** Некаторы час пракурыць (разм.). *Прасмаліў цэлую гадзіну.* ‖ *незак.* **прасма́льваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПРАСМЯРДЗЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Насычаны непрыемным пахам. *П. бензінам гараж.*

**ПРАСМЯРДЗЕ́ЦЬ**, -джу́, -дзі́ш, -дзі́ць; -дзі́м, -мердзіце́, -дзя́ць; -дзі́; *зак.* (разм.). Насыціцца непрыемным пахам, стаць смярдзючым. *Адзенне прасмярдзела дымам.*

**ПРАСНА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Тоўсты блін з прэснага цеста.

**ПРА́СНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Прыстасаванне, на якое падвешваецца кудзеля пры прадзенні.

**ПРАСО́ДЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Тое, што і *вершазнаўства.* **2.** Частка вершазнаўства — вучэнне аб метрычна значных элементах мовы. **3.** Сістэма вымаўлення націскных і ненаціскных, доўгіх і кароткіх складоў у мове. ‖ *прым.* **прасады́чны**, -ая, -ае.

**ПРАСО́Л** *і* **ПРАСО́ЛЬВАННЕ** *гл.* прасаліцца, прасаліць.

**ПРАСО́ЛЬВАЦЦА** *гл.* прасаліцца.

**ПРАСО́ЛЬВАЦЬ** *гл.* прасаліць.

**ПРАСО́ЎВАННЕ** *гл.* прасунуцца, прасунуць.

**ПРАСО́ЎВАЦЦА** *гл.* прасунуцца.

**ПРАСО́ЎВАЦЬ** *гл.* прасунуць.

**ПРАСО́ХЛЫ**, -ая, -ае. Які прасох. *Прасохлыя дровы.*

**ПРАСО́ХНУЦЬ** *гл.* сохнуць.

**ПРАСО́ЧВАЦЦА** *гл.* прасачыцца.

**ПРАСО́ЧВАЦЬ** *гл.* прасачыць.

**ПРАСПА́ЦЦА**, -плю́ся, -пі́шся, -пі́цца; -пі́мся, -піце́ся, -пя́цца; -пі́ся; *зак.* Пра п'янага: працверазіцца пасля сну. *Ідзі праспіся.*

**ПРАСПА́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́; *зак.* **1.** Прабыць які-н. час у стане сну. *П. аж да поўдня.* **2.** *што і без дап.* Прачнуцца пазней, чым трэба. *Праспаў і спазніўся на лекцыю.* **3.** *каго-што.* Знаходзячыся ў стане сну, не заўважыць, прапусціць. *П. станцыю.* ‖ *незак.* **прасыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2 і 3 знач.).

**ПРАСПЕ́КТ**[1], -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая шырокая і прамая вуліца ў горадзе. *Партызанскі п. у Мінску.*

**ПРАСПЕ́КТ**[2], -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Праграма, план чаго-н. *П. новага вучэбнага дапаможніка.* **2.** Гандлёвае даведачнае выданне рэкламнага характару. ‖ *прым.* **праспе́ктавы**, -ая, -ае *і* **праспе́ктны**, -ая, -ае.

**ПРАСПІРТАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ту́ецца; *зак.* Насыціцца спіртам. ‖ *незак.* **праспірто́ўвацца**, -аецца.

**ПРАСПІРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., каго-што.* Насыціць спіртам. ‖ *незак.* **праспірто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАСПРАГА́ЦЬ** *гл.* спрагаць[2].

**ПРАСПЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *гл.* спяваць. **2.** *што і без дап.* Правесці які-н. час, займаючыся спяваннем. *Праспяваў увесь вечар.*

**ПРАСТАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Прастадушны, няхітры. *Выгляд п.* **2.** Не вельмі разумны, недалёкі. *П. хлопец.* ‖ *наз.* **праставáтасць**, -і, *ж.*

**ПРАСТАГНА́ЦЬ**, -агну́, -о́гнеш, -о́гне; -агні́; *зак.* **1.** Абазвацца стогнам. *Хворы галасна прастагнаў.* **2.** *што і без дап.* Сказаць са стогнам. *Піць! — прастагнаў ранены.* **3.** Правесці які-н. час стогнучы. *Хворы ўвесь вечар прастагнаў.*

**ПРАСТАДУ́ШНЫ**, -ая, -ае. Няхітры і добры, наіўна-даверлівы. *П. чалавек. Прастадушна* (прысл.) *усміхнуцца.* ‖ *наз.* **прастаду́шнасць**, -і, *ж.*

**ПРАСТА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *прасцяк.* ‖ *памянш.* **прастачо́к**, -чка́,

*мн.* -чкі́, -чкóў, *м.* ‖ *ж.* **прастáчка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ПРАСТАКВА́ША**, -ы, *ж.* Густое кіслае малако. ‖ *прым.* **прастаква́шны**, -ая, -ае.

**ПРАСТАМÓЎЕ**, -я, *н.* Словы і граматычныя формы, уласцівыя вуснай народнай мове, якія выкарыстоўваюцца ў літаратурнай мове як стылістычны сродак для надання мове грубаватага зніжанага адцення. ‖ *прым.* **прастамóўны**, -ая, -ае.

**ПРАСТАРНÉЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -éе; *незак.* Станавіцца больш пpасторным. ‖ *зак.* **папрастарнéць**, -éе. *У хаце цяпер папрастарнела* (безас.).

**ПРАСТАТА́** *гл.* просты.

**ПРАСТАЯ́ЦЬ**, -таю́, -таі́ш, -таі́ць; -таі́м, -таіцé, -тая́ць; -тóй; *зак.* **1.** Правесці або прабыць які-н. час стоячы (*гл.* стаяць у 1, 2, 4, 6, 8—10 знач.). **2.** Прабыць у бяздзейнасці, у прастоі. *Цягнік прастаяў на раз'ездзе гадзіну.* **3.** Праіснаваць, не разбураючыся. *Гэты дом прастаіць яшчэ доўга.* ‖ *незак.* **прастóйваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПРАСТÓЙ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Вымушаная бяздзейнасць (рабочай сілы, механізмаў), непрадбачны перапынак у рабоце. *Ліквідаваць лішнія прастоі тэхнікі.* ‖ *прым.* **прастóйны**, -ая, -ае (спец.).

**ПРАСТÓЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Трон манарха. *Узысці на п.* (стаць манархам). *Сядзець на прастоле* (царстваваць). **2.** Высокі стол, які стаіць пасярэдзіне царкоўнага алтара. ‖ *прым.* **прастóльны**, -ая, -ае (да 2 знач.; уст.). *Прастольнае свята* (у гонар святога, з імем якога звязана царква).

**ПРАСТОЛАНАСЛÉДДЗЕ**, -я, *н.* (кніжн.). Парадак атрымання ў спадчыну прастола, улады манарха.

**ПРАСТÓР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Свабоднае, вялікае месца, абшар. *Стэпавы п.* **2.** Свабода, раздолле. *Дзецям тут п.*

**ПРАСТÓРА**, -ы, *ж.* **1.** Адна з форм (поруч з часам) існавання матэрыі, якая бясконца развіваецца і характарызуецца працягласцю і аб'ёмам. *П. і час.* **2.** Працягласць, месца, неабмежаванае бачнымі памерамі. *Нябесная п.* **3.** Свабодны прамежак паміж чым-н., месца, дзе што-н. змяшчаецца. *Свабодная п. паміж сцяной і сталом.* ‖ *прым.* **прастóравы**, -ая, -ае.

**ПРАСТÓРНЫ**, -ая, -ае. Свабодны, не цесны. *Прасторная хата. Прасторная сукенка.*

**ПРАСТРАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак.* Правесці які-н. час у стральбе.

**ПРАСТРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Прыгнечаны стан, поўная абыякавасць да наваколля. *Упадаць у прастрацыю.*

**ПРАСТРАЧЫ́ЦЬ** *гл.* страчыць.

**ПРАСТРÓЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *страчыць* (у 1 знач.).

**ПРАСТРУГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Выстругаць паглыбленне, паз у чым-н. *П. дошку.* **2.** Правесці які-н. час стругаючы. ‖ *незак.* **прастру́гваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАСТРЫ́ГЧЫ**, -рыгу́, -рыжэ́ш, -рыжэ́; -рыжóм, -рыжацé, -рыгу́ць; -ры́г, -гла; -рыжы́; -ры́жаны; *зак.* **1.** *што.* Выстрыгчы падоўжную паласу на чым-н. **2.** *каго-што.* Правесці які-н. час, займаючыся стрыжкай чаго-н. ‖ *незак.* **прастрыга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 знач.).

**ПРАСТРЭ́Л**, -у, *м.* (разм.). Прастудная хвароба — востры боль, ламота, калаццё ў паясніцы і іншых частках цела.

**ПРАСТРЭ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Страляючы, прабіць наскрозь. *П. руку.* ‖ *незак.* **прастрэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прастрэ́льванне**, -я, *н.*

**ПРАСТРЭ́ЛЬВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* Быць адкрытым для абстрэлу. *Пазіцыі прастрэльваюцца з вышыні.*

**ПРАСТРЭ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* прастрэліць. **2.** *што.* Мець магчымасць абстрэльваць які-н. участак поўнасцю, на ўсёй прасторы яго. *П. пазіцыі праціўніка.*

**ПРАСТУ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Хвароба, выкліканая ахаладжэннем арганізма. *Пабойвацца прастуды.* ‖ *прым.* **прасту́дны**, -ая, -ае.

**ПРАСТУДЗІ́ЦЦА**, -уджу́ся, -у́дзішся, -у́дзіцца; *зак.* Захварэць ад прастуды. *П. ў дарозе.* ‖ *незак.* **прасту́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАСТУДЗІ́ЦЬ**, -уджу́, -у́дзіш, -у́дзіць; -у́джаны; *зак., каго-што.* Прастудай выклікаць хваробу, захворванне. *П. дзяцей. П. вуха.* ‖ *незак.* **прасту́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАСТУ́ДЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Які лёгка прастуджваецца.

**ПРАСТУ́ДНЫ** *гл.* прастуда.

**ПРАСТУ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., каго-што.* Тое, што і *выстукаць* (у 2 знач.). *П. хвораму грудзі.* ‖ *незак.* **прасту́кваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прасту́кванне**, -я, *н.*

**ПРАСТЫТУ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Жанчына, якая займаецца прастытуцыяй. *Палітычная п.* (перан.: аб прадажным, беспрынцыповым палітыку; пагард.).

**ПРАСТЫТУ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Продаж жанчынамі свайго цела з мэтай здабывання сродкаў для існавання, а таксама з мэтай асабістага ўзбагачэння.

**ПРАСУМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; *зак.* Правесці які-н. час сумуючы. *Увесь вечар прасумавала адна.*

**ПРАСУ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Пралазячы, высунуцца, прайсці паміж чым-н. ці дзе-н. *У дзверы прасунулася галава. П. наперад.* **2.** Сунучыся, перамясціцца на якую-н. адлегласць. *Нашы войскі прасунуліся значна наперад.* **3.** *перан.* Высунуцца, павысіцца (разм.). *П. па службе.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Наблізіцца да завяршэння (разм.). *Справа прасунулася.* ‖ *незак.* **прасóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **прасóўванне**, -я, *н.*

**ПРАСУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -су́нь; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Упіхнуць, засунуць куды-н., праз што-н. вузкае ці ў што-н. *П. галаву ў акно. П. нітку ў іголку.* **2.** *каго-што.* Сунучы, перамясціць на якую-н. адлегласць ці паміж чым-н. *П. шафу праз дзверы.* **3.** *каго-што.* Перамясціць, накіраваць куды-н. *П. полк да перадавой лініі.* **4.** *перан., каго (што).* Высунуць, павысіць. *П. па службе.* **5.** *перан., што.* Зрабіць што-н. для хутчэйшага завяршэння, выканання чаго-н. (разм.). *П. справу.* ‖ *незак.* **прасóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прасóўванне**, -я, *н.*

**ПРАСУШЫ́ЦЦА**, -ушу́ся, -у́шышся, -у́шыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць поўнасцю сухім пасля сушкі. *Падушка прасушылася.* **2.** Высушыць на сабе адзенне, абутак (разм.). *Трапіў пад дождж, трэба п.* ‖ *незак.* **прасу́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАСУШЫ́ЦЬ**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць сухім, поўнасцю высушыць. *П. вопратку.* **2.** Правесці які-н. час, сушачы што-н. ‖ *незак.* **прасу́шваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **прасу́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **прасу́шванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПРАСЦÉЙШЫЯ**, -ых, *адз.* -ае, -ага, *н.* (спец.). Тып аднаклетачных жывёлін, якія складаюцца з адной клеткі або калоны клетак.

**ПРАСЦÉНАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Частка сцяны паміж аконнымі ці дзвярнымі праёмамі. ‖ *прым.* **прасцéначны**, -ая, -ае.

**ПРАСЦÉЦКІ**, -ая, -ае (разм.). Дабрадушны і просты, не цырымонны. *П. выгляд. П. хлопец.*

**ПРА́СЦІ**, праду́, прадзéш, прадзé; прадзём, прадзяцé, праду́ць; праў, пра́ла; прадзі́; пра́дзены; *незак., што.* Скручваючы (воўну, кудзелю і пад.), рабіць ніткі. ‖ *зак.* **спра́сці**, спраду́, спрадзéш, спрадзé; спрадзём, спрадзяцé, спраду́ць; спраў, спра́ла; спрадзі́; спра́дзены. ‖ *наз.* **прадзéнне**, -я, *н.*

**ПРАСЦІНА́**, -ы́, *мн.* прóсціны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) прасціны́, просцін, *ж.* Доўгі і шырокі кавалак тканіны, які падсцілаецца на пасцелі. ‖ *памянш.* **прасці́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **прасці́нны**, -ая, -ае.

**ПРАСЦЭ́НІУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Частка сцэны перад заслонай. ‖ *прым.* **прасцэ́ніумны**, -ая, -ае.

**ПРАСЦЯ́Г**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Свабодны, вялікі прастор; шыр. *Прасцягі палёў.*

**ПРАСЦЯ́К**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* (разм.). Прастадушны чалавек. ‖ *памянш.* **прасцячóк**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чкóў, *м.* ‖ *ж.* **прасця́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ПРАСЫПА́ЦЦА** *гл.* праспацца.

**ПРАСЫПА́ЦЬ** *гл.* праспаць.

**ПРАСЫХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Тое, што і *сохнуць* (у 1 знач.). *Вясной зямля добра прасыхае. Піць не прасыхаючы* (піць спіртнога многа, увесь час). ‖ *наз.* **прасыха́нне**, -я, *н.*

**ПРАСЯВА́ННЕ** *гл.* прасеяць.

**ПРАСЯВА́ЦЦА** *гл.* прасеяцца.

**ПРАСЯВА́ЦЬ** *гл.* прасеяць.

**ПРАСЯДЗЕ́ЦЬ** *гл.* праседзець.

**ПРАСЯКА́ЦЬ**[1] *гл.* прасячы.

**ПРАСЯКА́ЦЬ**[2] *гл.* прасякнуць.

**ПРАСЯ́КНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нуўся, -нулася; -ніся; *зак., чым.* Пранікнуцца, напоўніцца якім-н. пачуццём, перакананнем, ідэяй. *П. пачуццём адказнасці.* ‖ *незак.* **прасяка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРАСЯ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -нуў, -нула; -ні; -нуты; *зак.* **1.** Пранікнуць куды-н. праз што-н. *Цемра імкнулася п. усюды.* **2.** *перан., што* (звычайна ў форме дзеепрым. зал. прош.). Напоўніць якім-н. пачуццём, ідэяй. *Верш прасякнуты пафасам гуманізму.* ‖ *незак.* **прасяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прасякне́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ПРАСЯ́НІШЧА**, -а, *н.* Поле, на якім расло проса.

**ПРАСЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Невялічкая птушка сямейства аўсянкавых.

**ПРАСЯНЫ́** *гл.* проса.

**ПРАСЯЧЫ́** *і* **ПРАСЕ́КЧЫ**, -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы́; -се́чаны; *зак., што.* **1.** Секучы, зрабіць навылётную адтуліну ў чым-н. *П. акно. П. палонку.* **2.** Прабіць, сцябаючы або ўдараючы вострым. *П. пугай скуру. П. бот сякерай.* **3.** Зрабіць праход, праезд у чым-н. пры дапамозе інструментаў, прылад. *П. дарогу ў гарах.* ‖ *незак.* **прасяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прасяка́нне**, -я, *н.*

**ПРАТА...** (*гл.* **прота...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «прота...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *пратапоп, прататып.*

**ПРАТАКАЛІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., што* (кніжн.). Складаць пратакол (у 1—3 знач.). ‖ *зак.* **запратакалі́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**ПРАТАКО́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дакумент з запісам усяго, што адбывалася на пасяджэнні, сходзе, допыце. *П. сходу. П. допыту.* **2.** Дакумент, які сведчыць аб якім-н. факце. *П. анатаміравання трупа.* **3.** Акт аб парушэнні грамадскага парадку. *Скласці п. на хулігана.* **4.** Адзін з відаў міжнародных пагадненняў (спец.). ○ **Дыпламатычны пратакол** (спец.) — сукупнасць правіл, якія датычацца ажыццяўлення розных дыпламатычных актаў. ‖ *прым.* **пратако́льны**, -ая, -ае.

**ПРАТА́ЛІНА**, -ы, *мн.* -лін, *ж.* Месца, дзе растаў снег і агалілася зямля. ‖ *памянш.* **прата́лінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**ПРАТАПЛА́ЗМА**, -ы, *ж.* (спец.). Асноўнае рэчыва клеткі жывёльнага і раслиннага арганізма. ‖ *прым.* **протапла́зменны**, -ая, -ае.

**ПРАТАПО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.) Тое што і *протаіерэй.* ‖ *прым.* **пратапо́пскі**, -ая, -ае.

**ПРАТАПТА́ЦЬ**, -апчу́, -о́пчаш, -о́пча; -апчы́; -аптаны; *зак., што.* **1.** Утварыць, пракласці частай хадзьбой. *П. сцежку.* **2.** Працерці хадзьбой; пранасіць да дзірак. *П. падэшвы.* ‖ *незак.* **прато́птваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАТАРА́НІЦЬ** *гл.* тараніць.

**ПРАТАРА́НЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *тараніць* (у 2 знач.).

**ПРАТАРГАВА́ЦЦА**, -гу́юся, -гу́ешся, -гу́ецца; -гу́йся; *зак.* (разм.). **1.** Панесці страты або разарыцца пры няўдалым гандлі. **2.** Правесці які-н. час таргуючыся.

**ПРАТАРЫ́ЦЬ**, -тару́, -то́рыш, -то́рыць; -то́раны; *зак., што.* Пракласці хадзьбой, яздой, зрабіць наезджаным, добра вядомым. *П. шлях, дарогу. Юрый Гагарын пратарыў* (перан.) *дарогу ў космас.* ‖ *незак.* **прато́рваць**, -аю, -аеш, -вае.

**ПРАТАТЫ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Першапачатковы ўзор, правобраз, пераважна сапраўдная асоба як крыніца для стварэння літаратурнага вобраза, героя. *П. дзеда Талаша.*

**ПРАТАЎХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). **1.** Таўхаючыся, прабіцца наперад праз натоўп. **2.** Правесці які-н. час таўхаючыся. *Гадзіны дзве пратаўхаўся ў чарзе.*

**ПРАТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *зак.* Растаць або стаць талым. *Снег пратаў да зямлі.* ‖ *незак.* **пратава́ць**, -тае́.

**ПРАТАЧЫ́ЦЦА**, -ачу́ся, -о́чышся, -о́чыцца; *зак.* Точачыся, прабрацца праз што-н. *Мыш пратачылася праз шчыліну.* ‖ *незак.* **прато́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАТАЧЫ́ЦЬ**, -ачу́, -о́чыш, -о́чыць; -о́чаны; *зак., што.* **1.** Пра чарвей, насякомых, мышэй: праесці, зрабіўшы вузкія дзірачкі. *Шашаль пратачыў дошку.* **2.** Такарным разцом зрабіць канаўку, вузкую адтуліну ў вырабе (спец.). **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра цякучую ваду: прамыць дзірку, рэчышча ў глебе. **4.** Правесці які-н. час, займаючыся тачэннем чаго-н. ‖ *незак.* **прато́чваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—3 знач.). ‖ *наз.* **прато́чванне**, -я, *н.*

**ПРАТКНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* Пракалоць глыбока, наскрозь. *П. шпількай палец.* ‖ *незак.* **пратыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРАТО́КА**, -і, *ДМ* -то́цы, *мн.* -і, -то́к, *ж.* **1.** Бакавое адгалінаванае рэчышча, а таксама рукаў ракі, які злучае два вадаёмы. *Возера злучаецца з ракой пратокай.* **2.** Вузкая злучальная паласць, канал (спец.). *Жоўцевая п.* ‖ *прым.* **прато́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПРАТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Элементарная часцінка з дадатным зарадам, якая ўваходзіць у састаў усіх атамных ядраў. ‖ *прым.* **прато́нны**, -ая, -ае.

**ПРАТО́ПТВАЦЬ** *гл.* пратаптаць.

**ПРАТО́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пратока. **2.** Пра ваду, вадаём: цякучы, не стаячы. *Пратачная вада. Праточнае возера.* **3.** Які мае адносіны да руху струменя вадкасці або газу (спец.). *П. элемент* (у пнеўмааўтаматыцы). ‖ *наз.* **прато́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПРАТО́ЧЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -чын, *ж.* Прамытая вадой адтуліна, праход.

**ПРАТРА́ВА**, -ы, *ж.* Рэчыва, якім пратраўліваюць што-н.

**ПРАТРАВІ́ЦЬ**, -раўлю́, -ра́віш, -ра́віць; -ра́ўлены; *зак., што.* **1.** Зрабіць, апрацоўваючы хімічным шляхам, вытравіць. *П. узор на метале.* **2.** Апрацаваць (футра) асаблівым саставам перад фарбаваннем. **3.** Абеззаразіць хімічным рэчывам перад сяўбой, пасадкай. *П. насенне.* ‖ *незак.* **пратра́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **пратраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **пратра́ўліванне**, -я, *н.*

**ПРАТРА́ЛІЦЬ** *гл.* траліць.

**ПРАТРА́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* (спец.). Тое, што і *траліць* (у 2 знач.).

**ПРАТРА́ЦІЦЦА**, -тра́чуся, -тра́цішся, -тра́ціцца; *зак.* Зрабіць вялікія затраты, расходы. *П. на рамонт кватэры.* ‖ *незак.* **пратра́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАТРА́ЦІЦЬ**, -тра́чу, -тра́ціш, -тра́ціць; -тра́чаны; *зак.* **1.** *што* і *без дап.* Мець страту на чым-н. ад чаго-н. **2.** *што.* Поўнасцю растраціць. *П. грошы.* ‖ *незак.* **пратра́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАТРУБІ́ЦЬ** *гл.* трубіць.

**ПРАТРУ́ТА**, -ы, *ДМ* -тру́це, *ж.* Рэчыва, якім пратручваюць насенне і іншыя пасадачныя матэрыялы.

**ПРАТРУЦІ́ЦЬ**, -учу́, -у́ціш, -у́ціць; -у́чаны; *зак., што.* Тое, што і *пратравіць.* ‖ *незак.* **пратру́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пратру́чванне**, -я, *н.*

**ПРАТРЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* **1.** *што* і *без дап.* Стойка перажыць што-н., вытрываць. *П. шмат пакут.* **2.** Прадоўжыць сваё дзеянне не спыняючыся. *Халады пратрывалі да красавіка.* **3.** Захавацца, праіснаваць які-н. час. *Пад напорам такой вады гэты насып тут доўга не пратрывае.*

**ПРАТРЫМА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Прабыць які-н. час трымаючыся (у 1—5, 9 і 10 знач.).

**ПРАТРЫМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Трымаць (у 1, 3—8 знач.) на працягу якога-н. часу.

**ПРАТУ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). **1.** Прайсці, тупаючы нагамі. *Хтосьці пратупаў па калідоры.* **2.** Тое, што і *прайсці* (у 1 і 2 знач.). *Колькі мы сёння кіламетраў пратупалі?*

**ПРАТУРЫ́ЦЬ** *гл.* турыць.

**ПРАТУХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *незак.* Тое, што і *тухнуць*[2]. ‖ *зак.* **праху́хнуць**, -не; пратух, -хла. ‖ *наз.* **пратуха́нне**, -я, *н.*

**ПРАТУ́ХЛЫ**, -ая, -ае. Які пратух, нясвежы. *П. сыр.*

**ПРАТЭЖЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., каму* (кніжн.). Рабіць пратэкцыю. ‖ *наз.* **пратэжы́раванне**, -я, *н.*

**ПРАТЭЖЭ́**, *нескл., м.* і *ж., каго* або *чый* (кніжн.). Асоба, якая карыстаецца чыёй-н. пратэкцыяй. *Гэты юнак — ваш п.*

**ПРАТЭ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыстасаванне, выраблена ў форме якой-н. часткі цела ўзамен страчанай прыроднай. *Зубныя пратэзы.* || *прым.* **пратэ́зны**, -ая, -ае.

**ПРАТЭЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е, -зу́й; -зава́ны; *зак* і *незак., што.* Вырабіць (вырабляць) пратэз. *П. руку.* || *наз.* **пратэзава́нне**, -я, *н.*

**ПРАТЭ́КТАР**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Дзяржава, якая ажыццяўляе пратэктарат.

**ПРАТЭ́КТАР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Патоўшчаная частка пакрышкі, якая непасрэдна сутыкаецца з дарогай. || *прым.* **пратэ́ктарны**, -ая, -ае. *Пратэктарная рызіна.*

**ПРАТЭКТАРА́Т**, -а *і* -у, *М* -ра́це, *м.* **1.** -у. Форма залежнасці, пры якой слабейшая краіна, фармальна захоўваючы свой дзяржаўны лад, фактычна падпарадкавана мацнейшай імперыялістычнай дзяржаве. **2.** -а. Краіна, што знаходзіцца ў такой залежнасці. *На тэрыторыі пратэктарата.*

**ПРАТЭ́КЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Апякунства, падтрымка каго-н. ва ўладкаванні на работу, у прасоўванні па службе і пад. *Зрабіць пратэкцыю каму-н. Уладкавацца куды-н. па пратэкцыі.* || *прым.* **пратэкцы́йны**, -ая, -ае.

**ПРАТЭКЦЫЯНІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). **1.** Эканамічная палітыка дзяржавы, накіраваная на ахову нацыянальнай эканомікі ад замежнай канкурэнцыі. **2.** Падбор службовых асоб не па дзелавых якасцях, а па знаёмстве, па пратэкцыі. || *прым.* **пратэкцыяні́сцкі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПРАТЭКЦЫЯНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік пратэкцыянізму (у 1 знач.).

**ПРАТЭРМІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* Прапусціць устаноўлены тэрмін чаго-н. *П. ад'езд у камандзіроўку.* || *незак.* **пратэрміно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **пратэрміно́ўка**, і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **пратэрміно́ўванне**, -я, *н.*

**ПРАТЭ́СА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Прыналежнасць царкоўных шэсцяў у выглядзе палотнішча, прымацаванага да дрэўка з вобразам Хрыста, святых; харугва.

**ПРАТЭ́СТ**, -у, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Рашучае пярэчанне супраць чаго-н. *Дэманстрацыя тратэсту. Выказаць п.* **2.** Заява аб нязгодзе з кім-н. рашэннем (спец.). *П. пракурора.* **3.** Афіцыйнае пацвярджэнне факта нявыплаты ў тэрмін па вэксалі (спец.). *П. вэксаля.*

**ПРАТЭСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. **1.** *незак., супраць чаго.* Заяўляць пратэст (у 1 знач.), выказваць нязгоду. *П. супраць гонкі ўзбраенняў.* **2.** *зак.* і *незак., што.* Прынесці (прыносіць), зрабіць (рабіць) пратэст (у 2 і 3 знач.; спец.). || *зак.* таксама **апратэстава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны (да 2 знач.). || *наз.* **апратэстава́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ПРАТЭСТА́НТ**[1], -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто пратэстуе супраць чаго-н. || *ж.* **пратэста́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПРАТЭСТА́НТ**[2], -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік пратэстантызму. || *ж.* **пратэста́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **пратэста́нцкі**, -ая, -ае.

**ПРАТЭСТАНТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Назва хрысціянскіх веравучэнняў, якія адкалоліся ў сувязі з Рэфармацыяй 16 ст. ад каталіцызму. || *прым.* **пратэста́нцкі**, -ая, -ае.

**ПРАТЭСТА́НЦТВА**, -а, *н.* Тое, што і *пратэстантызм.*

**ПРА́ЎДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** Тое, што адпавядае рэчаіснасці; ісціна. *Гаварыць праўду. П. вочы коле* (прыказка). *Што п., то п.* (сапраўды, на самай справе; разм.). **2.** Парадак, заснаваны на справядлівасці, сумленнасці. *Шукаць праўды. Стаяць за праўду.* **3.** Тое, што і *правата* (разм.). *Ваша п.* (вы правы). **4.** *у знач. вык.* і *пабочн. сл.* Сапраўды, на самай справе. *І п., дождж ідзе. Я, п., забыла пра сход.* **5.** *злуч. уступальны.* Хоць і (разм.). *Сенакос добры, п. крыху далекавата ад вёскі.* ◊ **Па праўдзе кажучы**, *пабочн. сл.* (разм.) — ужыв. пры падкрэсліванні правільнасці, праўдзівасці сказанага, таго, што сцвярджаецца.

**ПРАЎДАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Падобны на праўду, верагодны. *Праўдападобная інфармацыя. Праўдападобна* (прысл.) *расказаць.* || *наз.* **праўдападо́бнасць**, -і, *ж.*

**ПРАЎДЗІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выражае праўду. *Праўдзівая аповесць. Праўдзіва* (прысл.) *расказваць.* **2.** Які любіць гаварыць праўду, імкнецца да праўды. *П. чалавек. П. характар.* || *наз.* **праўдзі́васць**, -і, *ж.*

**ПРА́ЎДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* (разм.). Спраўджвацць, здзяйсняцца. *Можа і сапраўды сны праўдзяць?*

**ПРА́ЎКА** *гл.* правіць[2].

**ПРАЎЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* правіць[1]. **2.** Орган, які кіруе якой-н. установай, арганізацыяй. *Член праўлення банка, кааператыва.* || *прым.* **праўле́нскі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПРА́ЎЛЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які быў у рамонце. *Праўленыя боты.* **2.** З папраўкамі, выпраўлены. *П. экзэмпляр рукапісу.*

**ПРА́ЎНУК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Сын унука ці ўнучкі.

**ПРА́ЎНУЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Дачка ўнука ці ўнучкі.

**ПРАФ...** Скарачэнне, якое ўжыв. ў складаных словах у знач.: 1) прафесійны, напр.: *прафгігіена, прафнепрыгоднасць;* 2) прафсаюзны, напр.: *прафактыў, прафбілет, прафбюро, прафрух.*

**ПРАФА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Зусім недасведчаны чалавек у якой-н. галіне. *У нотах ён поўны п.*

**ПРАФАНА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Скажэнне чаго-н. невуцкім, зняважлівым абыхожданнем, адносінамі; апашленне. *П. навукі.*

**ПРАФА́РГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Скарачэнне: прафсаюзны арганізатар — кіраўнік групы ўнутры пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі. || *прым.* **прафа́ргаўскі**, -ая, -ае (разм.).

**ПРАФАСТРЫГАВА́ЦЬ** *гл.* фастрыгаваць.

**ПРАФЕ́САР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вышэйшае вучонае званне выкладчыка вышэйшых навучальных устаноў і супрацоўніка навуковых і лячэбных устаноў, які кіруе навукова-даследчай і лячэбнай работай; таксама асоба, якая мае гэта званне. || *прым.* **прафе́сарскі**, -ая, -ае.

**ПРАФЕ́САРСКАЯ**, -ай, *мн.* -ія, -іх, *ж.* Пакой для прафесараў і выкладчыкаў у вышэйшай навучальнай установе.

**ПРАФЕ́САРСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* (кніжн.). Быць прафесарам, займаць пасаду прафесара. || *наз.* **прафе́сарства**, -а, *н.*

**ПРАФЕСІ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* прафесія. **2.** Які займаецца чым-н. як прафесіяй, а таксама які з'яўляецца прафесіяй. *П. рэвалюцыянер. П. бокс.* **3.** Такі, што цалкам адпавядае патрабаванням дадзенай вытворчасці, дадзенай галіны дзейнасці. *Зроблена зусім прафесійна* (прысл.). || *наз.* **прафесі́йнасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**ПРАФЕ́СІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* Асноўны род заняткаў, працоўнай дзейнасці, што служыць крыніцай існавання. *Па прафесіі інжынер-электрык. Вытворчыя прафесіі.* ○ **Вольная прафесія** — прафесія творчага работніка, які жыве на ганарары.

**ПРАФЕСІЯНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца чым-н. як прафесіяй (у адрозненне ад аматара). *Аўтамабіліст-п. Фатограф-п.* || *ж.* **прафесіяна́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак.

**ПРАФЕСУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Пасада прафесара (кніжн.). *Атрымаць прафесуру.* **2.** *зб.* Прафесары.

**ПРАФІЛАКТО́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (спец.). Прафілактычная або лячэбна-прафілактычная ўстанова. *Заводскі п.*

**ПРАФІЛА́КТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Сукупнасць папераджальных мерапрыемстваў (у медыцыне, тэхніцы і іншых галінах). *П. грыпу.* || *прым.* **прафілакты́чны**, -ая, -ае. *П. агляд машын.*

**ПРАФІЛЬТРАВА́ЦЬ** *гл.* фільтраваць.

**ПРАФІЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ва́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). **1.** Надаць (надаваць) чаму-н. правільны профіль (у 2 знач.). *П. дарогу.* **2.** Надаць (надаваць) профіль (у 3 знач.), адпавядаць профілю (у 3 знач.). || *наз.* **прафілява́нне**, -я, *н. і* **прафілёўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 знач.).

**ПРАФКА́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: прафсаюзны камітэт — выбарны орган пярвічнай прафарганізацыі. || *прым.* **прафка́маўскі**, -ая, -ае (разм.).

**ПРАФНЕПРЫГО́ДНАСЦЬ**, -і, *ж.* Скарачэнне: прафесійная непрыгоднасць. *Вызваліць каго-н. ад працы з-за прафнепрыгоднасці.*

**ПРАФО́РМА**, -ы, *ж.* (разм.). Знешняя фармальнасць, выгляд. *Захаваць праформу. Зрабіць што-н. для праформы.*

**ПРАФСАЮЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: прафесійны саюз. ‖ *прым.* **прафсаю́зны**, -ая, -ае.

**ПРАХ**, -у, *м.* (высок.). Астанкі цела чалавека пасля смерці. ◊ **Пайсці прахам** (разм.) — загінуць, знішчыцца.

**ПРАХАДЗІЦЬ**, -аджу́, -о́дзіш, -о́дзіць; *зак.* Правесці які-н. час у хадзьбе. *Паўдня прахадзілі па лесе.*

**ПРАХАДНА́Я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* Спецыяльнае службовае памяшканне, праз якое праходзяць на завод, будоўлю і пад. *Затрымацца каля прахадной.*

**ПРАХАДНЫ́**, -а́я, -о́е. Які мае скразны праход, служыць для праходу. *П. двор* (таксама перан.: пра месца, куды ўвесь час прыходзяць розныя людзі; неадабр.). *Прахадная пешка* (шахматная пешка, якая мае магчымасць прайсці ў ферзі).

**ПРАХАЛАДЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які асвяжае ў час гарачыні. *П. напітак.*

**ПРАХАЛАДЗІЦЦА**, -аджу́ся, -о́дзішся, -о́дзіцца; *зак.* (разм.). Астыць на паветры. *Выйшаў на двор п.*

**ПРАХАЛО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* Умераны холад, які выклікае прыемнае адчуванне. *Ранішняя п.*

**ПРАХАЛО́ДЖВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Рабіць што-н. павольна, не спяшаючыся; гультайнічаць.

**ПРАХАПІЦЦА**, -аплю́ся, -о́пішся, -о́піцца; *зак.* Раптоўна прачнуцца, абудзіцца. *П. ад моцнага стуку.* ‖ *незак.* **прахапля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца *і* **прахо́пліваца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАХАПІЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -о́піць; -о́плены; *зак., каго-што* (разм.). Пра вецер, холад і пад.: пранізаць наскрозь. *Яго прахапіла ветрам.* ‖ *незак.* **прахо́пліваць**, -ае.

**ПРАХАРЧАВА́ЦЦА**, -чу́юся, -чу́ешся, -чу́ецца; -чу́йся; *зак.* Пракарміцца. *П. зіму.* ‖ *незак.* **прахарчо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **прахарчо́ўванне**, -я, *н.*

**ПРАХАРЧАВА́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; -чу́й; -чава́ны; *зак., каго (што).* Пракарміць. ‖ *незак.* **прахарчо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прахарчо́ўванне**, -я, *н.*

**ПРАХВАРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* Прабыць хворым на працягу якога-н. часу. *Прахварэў тыдзень.*

**ПРАХВАЦІЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ціць; -а́чаны; *зак., каго-што* (разм.). Тое, што і *прахапіць.* ‖ *незак.* **прахва́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАХВО́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., пагард.). Нягоднік, падлюга. ‖ *ж.* **прахво́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ПРАХО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** *гл.* прайсці. **2.** *мн.* -ы, -аў. Месца, па якім можна прайсці праз што-н., дзе-н. *П. цераз мост. П. паміж радамі ў тэатры.* ○ **Задні праход** (спец.) — канечная частка прамой кішкі.

**ПРАХО́ДЖАННЕ** *гл.* прайсці.

**ПРАХО́ДЖВАЦЦА** *гл.* прайсціся.

**ПРАХО́ДЗІЦЬ** *гл.* прайсці.

**ПРАХО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* (спец.). Распрацоўка горных вырабатак у пэўным напрамку. ‖ *прым.* **прахо́дчы**, -ая, -ае. *Праходчая брыгада.*

**ПРАХО́ДНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Даступнасць чаго-н. для праходу. *П. балота.* **2.** Пра органы цела: здольнасць прапускаць што-н. праз сябе. *П. кішак.* **3.** Пра транспартныя сродкі: здольнасць пераадольваць дарожныя перашкоды. *Аўтамабіль павышанай праходнасці.*

**ПРАХО́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы па праходцы горных вырабатак. ‖ *ж.* **прахо́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПРАХО́ЖЫ**, -ая, -ае. Які ідзе міма, праходзіць куды-н. *Прахожыя людзі. Запытаць у прахожага* (наз.).

**ПРАХО́ПЛІВАЦЦА** *гл.* прахапіцца.

**ПРАХО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* прахапіць.

**ПРА́ЦА**, -ы, *ж.* **1.** Чалавечая дзейнасць, накіраваная на стварэнне пры дапамозе прылад вытворчасці матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, неабходных для жыцця людзей. *Фізічная п. Разумовая п. Людзі працы* (працоўныя; высок.). *Падзел працы. Прылады працы.* **2.** Работа, занятак. *Цяжкая сялянская п. Аплаціць за працу.* **3.** *мн.* -ы, прац. Вынік разумовай дзейнасці, твор. *Навуковая п. Спіс друкаваных прац.* **4.** Тое, што і *работа* (у 3 знач.). *Хадзіць на працу.* ‖ *прым.* **працо́ўны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Працоўная кніжка* (дакумент аб працоўным стажы).

**ПРАЦАВА́ЦЦА**, *незак.; безас., каму* (разм.). Пра жаданне працаваць; ладзіцца. *Сёння нам добра працавалася. Нешта не працуецца.*

**ПРАЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; *незак.* **1.** Займацца якой-н. працай, ажыццяўляць якую-н. дзейнасць. *П. у полі. Хто працуе, той і мае* (прыказка). *Хто працуе, таму і шанцуе* (прыказка). *П. здзельна. П. над помнікамі старой пісьменнасці* (вывучаць іх). *П. над сабой* (удасканальваць сябе ў чым-н.). *П. са слоўнікам.* **2.** Мець дзен. які-н. занятак, пасаду, служыць. *П. на фабрыцы. П. у калгасе. П.бухгалтарам.* **3.** *на каго-што.* Абслугоўваць каго-, што-н. сваёй працай. *П. на сябе. Завод працаваў на абарону.* **4.** *чым.* Прыводзіць у дзеянне, кіраваць чым-н. *П. вёсламі. П. рукамі і нагамі ў вадзе* (плысці). **5.** Знаходзіцца ў дзеянні, выконваць свае функцыі. *Матор працуе без перабояў. Сэрца нармальна працуе.*

**ПРАЦАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Вельмі старанны, працавіты чалавек, рабацяга.

**ПРАЦАВІ́ТЫ**, -ая, -ае. Які многа, добра і шчыра працуе. *П. чалавек.* ‖ *наз.* **працаві́тасць**, -і, *ж.*

**ПРАЦАДЗЕ́НЬ**, -дня́, *мн.* -дні́, -дзён, *м.* Адзінка ўліку працы калгаснікаў і размеркавання даходаў па працы ў калгасах.

**ПРАЦАДЗІ́ЦЬ**, -аджу́, -э́дзіш, -э́дзіць; -э́джаны; *зак., што.* **1.** Прапусціць (вадкасць) для ачысткі праз што-н., што фільтруе. *П. малако.* **2.** *перан.* Вымавіць неразборліва, не разнімаючы зубоў. ‖ *незак.* **працэ́джваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.). ‖ *наз.* **працэ́джванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПРАЦАЁМКІ**, -ая, -ае. Які патрабуе вялікай затраты працы. *Лён — працаёмкая культура.* ‖ *наз.* **працаёмкасць**, -і, *ж.*

**ПРАЦАЗДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Здольны да працы. *Працаздольная частка насельніцтва.* ‖ *наз.* **працаздо́льнасць**, -і, *ж.* *Страта працаздольнасці.*

**ПРАЦАЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які вызначаецца вялікай любоўю да працы. *П. хлопец.*

**ПРАЦАТЭРАПІ́Я**, -і, *ж.* Лячэнне працай, працэсамі працы. ‖ *прым.* **працатэрапеўты́чны**, -ая, -ае.

**ПРАЦАЎЛАДКАВА́ННЕ**, -я, *н.* (афіц.). Уладкаванне на працу, забеспячэнне працай каго-н. *П. выпускнікоў вучылішча.*

**ПРАЦАЎЛАДКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., каго* (афіц.). Забяспечыць працай каго-н.

**ПРАЦАЎНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Той, хто працуе. *Сумленны п.* **2.** Работнік якой-н. галіны, сферы працы. *Працаўнікі навукі.* ‖ *ж.* **працаўні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПРАЦВЕРАЗЕ́ЦЬ** *гл.* цверазець.

**ПРАЦВЕРАЗІ́ЦЦА**, -веражу́ся, -вярэ́зішся, -вярэ́зіцца; *зак.* Стаць цвярозым (у 1 знач.). ‖ *незак.* **працвераж́ацца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **працвярэ́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **працвераже́нне**, -я, *н.* *і* **працвярэ́жванне**, -я, *н.*

**ПРАЦВЕРАЗІ́ЦЬ**, -веражу́, -вярэ́зіш, -вярэ́зіць; -вярэ́жаны; *зак., каго (што).* Прывесці ў цвярозы стан. ‖ *незак.* **працвярэ́жваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **працвераж́аць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **працвярэ́жванне**, -я, *н.* *і* **працвераже́нне**, -я, *н.*

**ПРАЦВІСЦІ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -віце́; *зак.* Прабыць які-н. час у цвіценні. *Яблыня працвіла дзесяць дзён.*

**ПРАЦВІТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е, *незак.* Тое, што і *квітнець* (у 2 знач.). ‖ *наз.* **працвіта́нне**, -я. *н.*

**ПРАЦЕРАБІ́ЦЬ**, -ераблю́, -ярэ́біш, -ярэ́біць; -ярэ́блены; *зак., што.* Расцерабіўшы, зрабіць праход. *П. сабе дарогу* (таксама перан.). ‖ *незак.* **працярэ́бліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **працярэ́бліванне**, -я, *н.*

**ПРАЦЕ́РЦІ**, пратру́, пратрэ́ш, пратрэ́; пратро́м, пратраце́, пратру́ць; працёр, -це́рла; пратры́; працёрты; *зак., што.* **1.** Прадзіравіць трэннем. *П. паперу гумкай.* **2.** Расціраючы, прапусціць праз што-н. *П. ягады праз сіта.* **3.** Выціраючы, ачысціць. *П. шкельцы акуляраў.* **4.** Пракласці, утварыць частай яздой, хадой (разм.). *П. дарогу санямі.* ◊ **Працерці вочы** (разм.) — прачнуцца, адысці ад сну. ‖ *незак.* **праціра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **праці́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* *і* **праціра́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **праці́рачны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.; спец.).

**ПРАЦЕ́РЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., пратрэ́цца; працёрся, -це́рлася; *зак.* Прад-

рацца ад трэння. *Локці рукавоў працерліся.* || *незак.* **праціра́цца**, -а́ецца.

**ПРАЦІ́ВІЦЦА**, -ці́ўлюся, -ці́вішся, -ці́віцца; *незак., каму-чаму.* Выказваць нязгоду, супраціўляцца. *П. злу.* || *зак.* **запраці́віцца**, -ці́ўлюся, -ці́вішся, -ці́віцца.

**ПРАЦІНА́ЦЬ** *гл.* працяць.

**ПРАЦІ́СНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* Прабрацца праз натоўп, вузкі праход. *П. між лавак.* || *незак.* **праціска́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРАЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* **1.** Моцна націснуўшы, праламаць, увагнуць. *П. шыбу. П. канапу.* **2.** Праштурхнуць, прасунуць намаганнем праз што-н. вузкае, цеснае. *П. руку ў шчыліну.* || *незак.* **праціска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРАЦІ́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто процідзейнічае каму-, чаму-н., варожа адносіцца да каго-, чаго-н. *П. прымірэння.* **2.** Вораг, нядобразычлівец. *Гэты чалавек — мой даўні п.* **3.** *зб.* Варожыя ўзброеныя сілы, вораг. *Адкрыць агонь па праціўніку.* **4.** Сапернік у спаборніцтве, барацьбе. *Баксёр лёгка справіўся з праціўнікам.* || *ж.* **праці́ўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 1 і 2 знач.).

**ПРАЦІ́ЎНЫ**, -ая, -ае (разм.). Вельмі непрыемны, агідны. *Праціўная істота.*

**ПРАЦО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* праца. **2.** Заснаваны на выкарыстоўванні працы. *Працоўнае выхаванне.* **3.** Які жыве заробкам ад сваёй працы. *Працоўныя класы грамадства.* **4.** Набыты працай. *Працоўныя даходы.* **5.** Які праходзіць у працы. *П. дзень.*

**ПРАЦЫТАВА́ЦЬ** *гл.* цытаваць.

**ПРАЦЬ**, пяру́, пярэ́ш, пярэ́; пяро́м, перацё, пяру́ць; праў, пра́ла; пяры́; *незак., што.* Мыць (бялізну, палатно), б'ючы пранікам. *П. бялізну.*

**ПРАЦЭ́ДЖВАННЕ** *гл.* працадзіць.

**ПРАЦЭ́ДЖВАЦЬ** *гл.* працадзіць.

**ПРАЦЭДУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ду́р, *ж.* **1.** Афіцыйны парадак дзеянняў, выканання, абмеркавання чаго-н. (кніжн.). *П. падпісання дагавора.* **2.** звычайна *мн.* Асобны працэс лячэння (напр., ванна, кампрэс і пад.), загартоўвання, гігіены цела. *Хадзіць у паліклініку на працэдуры. Водныя працэдуры.* || *прым.* **працэду́рны**, -ая, -ае. *П. кабінет.*

**ПРАЦЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сотая доля ліку, які прымаецца за цэлае (абазначаецца знакам %). **2.** Колькасць, якая вымяраецца ў сотых долях чаго-н., прынятага за адзінку. *Выканаць план на 105 працэнтаў.* **3.** Даход, які атрымліваецца на кожныя 100 грашовых адзінак, што знаходзяцца ў банку, ашчадкасе. *Выплачваюцца працэнты.* **4.** Узнагарода, якая вылічваецца ў залежнасці ад даходу. *Працаваць на працэнтах.* ◊ **На (усе) сто працэнтаў** (разм., адабр.) — поўнасцю. || *прым.* **працэ́нтны**, -ая, -ае.

**ПРАЦЭ́С**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Паслядоўная змена стану ў развіцці чаго-н., ход, развіццё якой-н. з'явы. *Усё высветлілася ў працэсе працы. П. развіцця. Вытворчы п.* **2.** Актыўнае развіццё хваробы. *Запаленчы п. П. у лёгкіх.* **3.** Парадак разбору судовых і адміністрацыйных спраў, а таксама судовая справа. *Грамадзянскі п. Выступаць на працэсе.* || *прым.* **працэсуа́льны**, -ая, -ае (да 3 знач.; спец.). *П. кодэкс.*

**ПРАЦЭ́САР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Цэнтральнае ўстройства ЭВМ, якое выконвае зададзеныя праграмай пераўтварэнні інфармацыі, кіруе вылічальным працэсам і каардынуе працу перыферыйных устройстваў. || *прым.* **працэ́сарны**, -ая, -ае.

**ПРАЦЭ́СІЯ**, -і, *ж.* Урачыстае мнагалюднае шэсце. *Пахавальная п.*

**ПРАЦЯ́Г**, -у, *м.* **1.** *гл.* працягнуцца, працягнуць. **2.** Частка чаго-н. не закончанага, не завершанага; прадаўжэнне (напр., артыкула, падзеі). *Гэта дарога — п. магістралі. П. рамана ў наступным нумары часопіса.* ◊ **На працягу** *чаго, прыназ.* — у час чаго-н. *Званілі на працягу ўсёй гадзіны.*

**ПРАЦЯГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Тое, што і *пранасіць* (у 1 знач.). **2.** Цягаць (у 1, 3 і 4 знач.) на працягу якога-н. часу.

**ПРАЦЯ́ГЛАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Адлегласць у прасторы, занятая чым-н. *П. трубаправода.* **2.** Час, на працягу якога што-н. дзейнічае, адбываецца. *П. камандзіроўкі. П. гуку.*

**ПРАЦЯ́ГЛЫ**, -ая, -ае. Які доўга працягваецца. *П. тэрмін.*

**ПРАЦЯГНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́гнецца; *зак.* **1.** Выцягваючыся, выставіцца наперад. *Працягнуліся дзве пары рук.* **2.** Прадоўжыцца. *Даклад працягнуўся дзве гадзіны.* **3.** Расцягнуцца на якую-н. адлегласць. *Горад працягнуўся ўздоўж ракі на дзясяткі кіламетраў.* || *незак.* **праця́гвацца**, -аецца. || *наз.* **праця́г**, -у, *м.* (да 2 знач.).

**ПРАЦЯГНУ́ЦЬ**, -ягну́, -я́гнеш, -я́гне; -ягні́; -я́гнуты *і* -я́гнены; *зак.* **1.** *каго-што.* Цягнучы, перамясціць. *П. сані па снезе.* **2.** *што.* Нацягнуць на якой-н. адлегласці або ўздоўж чаго-н., пракласці на якую-н. адлегласць. *П. тэлефонную лінію.* **3.** *што.* Выцягваючы, выставіць у якім-н. напрамку. *П. рукі. П. ногі* (таксама перан.: памерці; разм.). **4.** *што.* Прапусціць праз вузкую адтуліну, уцягнуць у што-н. *П. нітку ў іголку.* **5.** *што.* Дамагчыся прыняцця недазволенымі метадамі (разм., неадабр.). *П. рэзалюцыю на сходзе.* **6.** *што.* Зрабіць даўжэйшым, павялічыць тэрмін чаго-н. *П. лінію алоўкам. П. заняткі.* **7.** *што.* Прымусіць доўга гучаць; вымавіць павольна, працяжна. *П. ноту.* **8.** *што.* Прадоўжыць, узнавіць пасля перапынку. *П. сход.* **9.** *перан., каго (што).* Раскрытыкаваць, публічна абсмяяць (разм.). *П. у газеце.* **10.** Праіснаваць, пражыць (разм.). *Гэты хворы доўга не працягне.* || *незак.* **праця́гваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—6, 8 і 9 знач.). || *наз.* **праця́г**, -у, *м.* (да 8 знач.).

**ПРАЦЯ́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Знак прыпынку ў выглядзе доўгай гарызантальнай рыскі (—).

**ПРАЦЯ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Пра гукі: які гучыць павольна, цягуча. *П. стогн. П. гудок. Працяжная песня.* || *наз.* **праця́жнасць**, -і, *ж.*

**ПРАЦЯЖНЫ́**, -а́я, -о́е (спец.). Які служыць для апрацоўкі чаго-н. пры руху, працягванні. *П. станок.*

**ПРАЦЯРПЕ́ЦЬ**, -цярплю́, -це́рпіш, -це́рпіць; -цярпі́; *зак., што* (разм.). Цярпліва перанесці што-н., перацярпець. *П. дзень без яды.*

**ПРАЦЯРЭ́БЛІВАННЕ** *гл.* працерабіць.

**ПРАЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ** *гл.* працерабіць.

**ПРАЦЯ́ЦЬ**, пратну́, пратне́ш, пратне́; пратнём, пратняце́, пратну́ць; праця́ў, -цяла́, -ло́; пратні́; праця́ты; *зак., каго-што.* Тое, што і *праткнуць. П. рагамі. Гэта думка балюча працяла сэрца* (перан.). *П. поглядам* (перан.: хутка і пільна паглядаць на каго-н.). || *незак.* **праціна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРАЦЯЧЫ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цячэ́; -цёк, -цякла́, -ло́; *зак.* **1.** Прайсці дзе-н. сваім цячэннем (пра раку, ручай). **2.** Прасачыцца, пранікнуць. *Вада працякла ў лодку.* **3.** Стаць пранікальным для вільгаці, дзіравым. *Страха працякла.* **4.** *перан.* Прайсці, мінуць. *Гады працяклі. Хвароба працякла без ускладненняў.* || *незак.* **працяка́ць**, -а́е. || *наз.* **працяка́нне**, -я, *н.*

**ПРАЧАКА́НІЦЬ** *гл.* чаканіць.

**ПРАЧАКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., каго-што* (разм.). Стаміцца ад доўгага чакання. *П. пісьма.*

**ПРАЧАКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што і чаго.* Правесці які-н. час у чаканні. *Дарэмна прачакаў увесь вечар.*

**ПРАЧАРЦІ́ЦЬ**, -чарчу́, -чэ́рціш, -чэ́рціць; -чэ́рчаны; *зак., што.* **1.** Чэрцячы, правесці, вычарціць (лінію). *П. маршрут на карце.* **2.** Правесці які-н. час, займаючыся чарчэннем. || *незак.* **прачэ́рчваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**ПРАЧАСА́ЦЬ**[1], -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чашы́; -часа́ны *і* -чэ́саны; *зак., што.* **1.** Апрацаваць часаннем (валакно). *П. лён.* **2.** *перан.* Пільна агледзець, абследаваць або абстраляць (якую-н. прастору, участак). *Пяхота прачасала лес.* || *незак.* **прачэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **прачэ́сванне**, -я, *н. і* **прачо́ска**, -і, *ДМ* -чо́сцы, *ж.*

**ПРАЧАСА́ЦЬ**[2], -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чашы́; -часа́ны *і* -чэ́саны; *зак., што* (спец.). Вычасаць у даўжыню. *П. паз.* || *наз.* **прачо́ска**, -і, *ДМ* -чо́сцы, *ж.*

**ПРА́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Работніца, якая займаецца мыццём бялізны.

**ПРАЧНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Перастаць спаць, прабудзіцца. *Дзіця прачнулася рана. У грудзях прачнулася нянавісць* (перан.). **2.** *перан.* Ажывіцца, прыйсці ў рух. *Вёска прачнулася.* || *незак.* **прачына́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРАЧУ́ЛЫ**, -ая, -ае. Напоўнены вялікім пачуццём. *Прачулыя словы.* ‖ *наз.* **прачу́ласць**, -і, *ж.*

**ПРАЧУ́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Пра які прачулі, даведаліся. *Прачутыя навіны.* **2.** Прасякнуты пачуццём. *Прачутае жывое слова.*

**ПРАЧУ́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; -чу́ты; *зак.* (разм.). **1.** Даведацца па чутках, размовах. *П. пра чыё-н. гора.* **2.** Пранікнуць пачуццём у сэнс чаго-н. *П. сэрцам усё, што здарылася.*

**ПРАЧЫНА́ЦЦА** *гл.* прачнуцца.

**ПРАЧЫНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́ніцца; *зак.* Не поўнасцю адчыніцца. *Дзверы прачыніліся.* ‖ *незак.* **прачыня́цца**, -я́ецца.

**ПРАЧЫНІ́ЦЬ**, -чыню́, -чы́ніш, -чы́ніць; -чы́нены; *зак., што.* Не поўнасцю адчыніць. *П. дзверы.* ‖ *незак.* **прачыня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПРАЧЫ́СЦІЦЬ**, -чы́шчу, -чы́сціш, -чы́сціць; -чы́шчаны; *зак., што.* **1.** Вычысціць унутранасць чаго-н. *П. канал ствала. П. лес.* **2.** Правесці некаторы час, ачышчаючы што-н. ‖ *незак.* **прачышча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 знач.). ‖ *наз.* **прачы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **прачышчэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПРАЧЫТА́ННЕ** *гл.* чытаць.

**ПРАЧЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., што.* **1.** *гл.* чытаць. **2.** Правесці які-н. час чытаючы.

**ПРАЧЫ́ТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* (разм.). Тое, што і *чытаць* (у 1 знач.). *Штодзень п. прэсу.*

**ПРАЧЭ́РЧВАЦЬ** *гл.* прачарціць.

**ПРАЧЭ́СВАННЕ** *гл.* прачасаць[1].

**ПРАЧЭ́СВАЦЬ** *гл.* прачасаць[1].

**ПРАШАПТА́ЦЬ**, -шапчу́, -шэ́пчаш, -шэ́пча; -шапчы́; -шапта́ны; *зак., што.* Сказаць шэптам. *П. ласкавае слова.*

**ПРАШАРАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ру́ецца; *зак.* Прадзіравіцца ад шаравання. *Адвал плуга прашараваўся.* ‖ *незак.* **прашаро́ўвацца**, -аецца.

**ПРАШАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -рава́ны; *зак., што.* Прадзіравіць шараваннем. *П. рукаў.* ‖ *незак.* **прашаро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прашаро́ўванне**, -я, *н.*

**ПРАШМЫГНУ́ЦЬ**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* (разм.). Хутка і непрыметна прайсці куды-н. ‖ *незак.* **прашмы́гваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАШНУРАВА́ЦЬ** *гл.* шнураваць.

**ПРАШПАКЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ва́ны; *зак., што.* Прамазаць шпаклёўкай. *П. падлогу.* ‖ *незак.* **прашпаклёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРАШПІГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны; *зак., што.* Начыніць што-н. салам, часнаком, морквай і пад.

**ПРАШТАБНАВА́ЦЬ** *гл.* штабнаваць.

**ПРАШТРА́ФІЦЦА**, -флюся, -фішся, -фіцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *правінавáціцца.*

**ПРАШТУДЗІ́РАВАЦЬ** *гл.* штудзіраваць.

**ПРАШТУ́РХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Штурхаючыся, прабрацца праз натоўп. *П. у першыя рады.* ‖ *незак.* **прашту́рхвацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **праштурхо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРАШТУРХНУ́ЦЬ**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ту́рхнуты; *зак., каго-што.* Прасунуць штуршком. *П. корак у бутэльку. П. справу* (перан.: прасунуць, паскорыць). ‖ *незак.* **прашту́рхваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **праштурхо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; ‖ *наз.* **прашту́рхванне**, -я, *н. і* **праштурхо́ўванне**, -я, *н.*

**ПРАШУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Правесці які-н. час у пошуках. *Цэлую гадзіну прашукаў кнігу.*

**ПРА́ШЧА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Старадаўняя ручная зброя для кідання камянёў.

**ПРАШЧУ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Шчупаючы, выявіць, адчуць, праверыць. *П. пухліну.* **2.** *перан., каго-што.* Назіраючы, даследуючы, скласці сабе ўяўленне пра каго-, што-н. (разм.). *П. веды новага работніка. П. глебу* (тое, што і пазандзіраваць глебу). ‖ *незак.* **прашчу́пваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прашчу́пванне**, -я, *н.*

**ПРА́ШЧУР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Далёкі продак, родапачынальнік.

**ПРАШЫ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** *гл.* прашыць. **2.** Тое, што і *прошва.* ‖ *прым.* **прашы́вачны**, -ая, -ае.

**ПРАШЫЎНЫ́**, -а́я, -о́е. Прашыты наскрозь. *Прашыўная падэшва.*

**ПРАШЫ́ЦЬ**, -шы́ю, -шы́еш, -шы́е; -шы́ты; *зак.* **1.** *што.* Сшыць скразным швом, зрабіць шво, швы на чым-н. *П. падэшвы. П. каўнер.* **2.** *каго-што.* Прастрэліць куляй, снарадам; зрашэціць кулямі, асколкамі снарадаў (разм.). *Куля прашыла калена. П. варожую калону кулямётнай чаргой.* **3.** *што.* Правесці які-н. час за шыццём. *П. увесь вечар.* ‖ *незак.* **прашыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **прашы́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **прашыва́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**ПРАШЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (уст.). Пісьмовае хадайніцтва аб чым-н. *Падаць п.*

**ПРАЭКЗАМЕНАВА́ЦЦА** *гл.* экзаменавацца.

**ПРАЭКЗАМЕНАВА́ЦЬ** *гл.* экзаменаваць.

**ПРАЯ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, пра́яў, *ж.* **1.** Незвычайнае здарэнне. *Што за п.!* **2.** З'ява, праяўленне. *Праявы жыцця.*

**ПРАЯ́ВАЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які служыць для праяўлення фота- і кінаплёнкі. *Праявачная машына.*

**ПРАЯВІ́ЦЕЛЬ**, -ю, *м.* (спец.). Хімічны састаў для праяўлення фатаграфічных пласцінак, плёнак, здымкаў.

**ПРАЯВІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́віцца; *зак.* **1.** Выявіцца, стаць відавочным (пра якасці, уласцівасці). *У дзяўчынкі праявіліся музычныя здольнасці.* **2.** Стаць бачным пасля хімічнай апрацоўкі (пра адбітак на фатаграфічнай пласцінцы, плёнцы; спец.). ‖ *незак.* **праяўля́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **праяўле́нне**, -я, *н.*

**ПРАЯВІ́ЦЬ**, -яўлю́, -я́віш, -я́віць; -я́ўлены; *зак., што.* **1.** Робячы што-н., выявіць наяўнасць якіх-н. якасцей, уласцівасцей. *П. назіральнасць. П. клопат. П. сябе* (выявіць свае магчымасці). **2.** Апрацаваўшы хімічна, зрабіць бачным адлюстраванне сфатаграфаванага прадмета (спец.). *П. плёнку.* ‖ *незак.* **праяўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **праяўле́нне**, -я, *н.*

**ПРАЯДА́ЦЬ** *гл.* праесці.

**ПРАЯЗДЖА́ЦЦА** *гл.* праехацца.

**ПРАЯЗДЖА́ЦЬ** *гл.* праехаць.

**ПРАЯЗНЫ́**, -а́я, -о́е. Які дае права на праезд. *Праязныя дакументы. П. білет.*

**ПРАЯСНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які праяснеў, стаў выразным, ясным. *Праяснелае неба. Праяснелыя думкі.*

**ПРАЯСНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* **1.** Стаць ясным, чыстым ад хмар. *Неба праяснела. К вечару праяснела* (безас.; распагодзілася). **2.** Стаць асэнсаваным, ясным ці спакойным. *Думкі праяснелі. Твары людзей праяснелі.* ‖ *наз.* **праясне́нне**, -я, *н.*

**ПРАЯСНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -і́цца; *зак.* **1.** Стаць ясным, праяснець. *Неба праяснілася. Думкі праясніліся.* **2.** Стаць свабодным ад няяснасцей. *Справа праяснілася.* ‖ *незак.* **праясня́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **праясне́нне**, -я, *н.*

**ПРАЯЎЛЕ́ННЕ** *гл.* праявіцца, праявіць.

**ПРАЯЎЛЯ́ЦЦА** *гл.* праявіцца.

**ПРАЯЎЛЯ́ЦЬ** *гл.* праявіць.

**ПРО́БА**[1], -ы, *ж.* **1.** Выпрабаванне, праверка. *П. механізма. П. галасоў. П. агнём.* **2.** Частка матэрыялу, ежы, узятая для праверкі, вызначэння якасці. *Узяць на пробу.* ‖ *прым.* **про́бны**, -ая, -ае.

**ПРО́БА**[2], -ы, *мн.* -ы, проб, *ж.* Колькасць частак высакароднага металу, якая змяшчаецца ў пэўнай колькасці вагавых долей сплаву, а таксама кляймо на вырабах з высакароднага металу, якое абазначае гэту колькасць. *Золата нізкай пробы.* ‖ *прым.* **про́бны**, -ая, -ае (спец.). *Пробнае золата* (з кляймом пробы).

**ПРО́БАВАЦЬ** *гл.* прабаваць.

**ПРО́БКА**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* **1.** Электрычны засцерагальнік. *Пробкі перагарэлі.* **2.** *перан.* Вялікая колькасць каго-, чаго-н., якая перашкаджае нармальнаму руху (разм.). *П. на чыгуначным пераездзе.*

**ПРО́БЛІСК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Бляск або святло, якое раптоўна паявілася дзе-н. *Пробліскі маланкі.* **2.** *перан., чаго.* Слабае праяўленне чаго-н. *П. надзеі. П. свядомасці.*

**ПРО́БНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Узяты на пробу[1], прызначаны для ўзяцця пробы[1]. *Пробныя духі. П. камень* (перан.: пра ўчынак, выпадак, па якім робяць вывад аб трываласці, каштоўнасці, сіле чаго-н.). *П. шар* (перан., уст.: пра дзеянне, пры дапамозе якога імкнуцца высветліць што-н.). **2.** Які робіцца для выпрабавання, праверкі. *П. рэйс.*

**ПРО́БНЫ**[2] *гл.* проба[2].

**ПРО́ВАД**, -у, *М* -дзе, *мн.* правады́, -до́ў, *м.* Металічны дрот для перадачы электрычнага току. *Тэлефонны п. Старшыня на провадзе* (тэлефонны апарат злучаны са старшынёй; разм.). ‖ *прым.* **правадны́**, -а́я, -о́е (спец.). *Правадная сувязь* (якая ажыццяўляецца па правадах у адрозненне ад радыёсувязі).

**ПРО́ДАЖ**, -у, *м.* **1.** *гл.* прадаць. **2.** Гандаль, тавараабарот. *Быць у продажы. Выпусціць у п.* ‖ *прым.* **прада́жны**, -ая, -ае.

**ПРО́ДАК**, -дка, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* Старажытны папярэднік па родзе, а таксама суайчыннік з папярэдніх пакаленняў. *Шанаваць памяць сваіх продкаў.*

**ПРО́ЖАЎЦЬ**, -і, *ж.* (разм.). Прымесь жоўтага, жаўцізны. *Збажына, ледзь кранутая прожаўцю.*

**ПРО́ЖЫЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* Тонкая каляровая палоска, прамежкавы слой ў камені, дрэве, а таксама жылка, якая свіціцца праз скуру. *Белы кварц з жоўтымі прожылкамі. Рука з сінімі прожылкамі. Прожылкі на лістах, кветках.*

**ПРО́ЗА**, -ы, *ж.* **1.** Невершаваная літаратура ў адрозненне ад паэзіі. *Мастацкая п. Пісаць прозай.* **2.** *перан.* Будзённасць, паўсядзённасць жыцця. *П. жыцця.* ‖ *прым.* **празаі́чны**, -ая, -ае.

**ПРО́ЗВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спадчыннае сямейнае найменне, якое дадаецца да ўласнага асабістага імя. *Дзявочае п.* (да замужжа).

**ПРО́ЙГРЫШ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Няўдачны для каго-н. зыход гульні, спаборніцтва і пад. *Застацца ў пройгрышы.* **2.** Сума грошай, страчаная пры гульні. *Вялікі п.* ‖ *прым.* **про́йгрышны**, -ая, -ае.

**ПРО́ЙМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Адтуліна, паглыбленне ў чым-н., паміж чым-н. *У пройме дзвярэй паказалася галава. П. паміж хмарамі.* **2.** Прарэз для рукава (спец.). ‖ *прым.* **про́йменны**, -ая, -ае *і* **про́ймавы**, -ая, -ае.

**ПРО́ЛЕЖАНЬ**, -жня, *мн.* -жні, -жняў, *м.* У ляжачых хворых: амярцвенне скураных покрываў той часткі цела, на якой доўга і нерухома ляжаць. ‖ *прым.* **про́лежневы**, -ая, -ае.

**ПРО́МАХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Удар, выстрал міма цэлі. *Біць без промаху.* **2.** *перан.* Памылка, хіба. *Зрабіць п.* ◊ **Не промах** *хто* (разм.) — пра чалавека кемлівага, лоўкага. *Гэты хлопец не п.*

**ПРО́МЫСЕЛ**, -слу, *мн.* -слы, -слаў, *м.* **1.** *каго-чаго.* Здабыванне чаго-н., паляванне. *П. жэмчугу. П. собаля.* **2.** Занятак паляваннем, здабычай звяроў, птушак і пад. *Паляўнічы п. Рыбалоўны п.* **3.** Дробная рамесная вытворчасць, звычайна як падсобны занятак пры асноўным, сельскагаспадарчым. *Ганчарны п. Кавальскі п.* **4.** *мн.* Прамысловае прадпрыемства здабыўнога тыпу. *Нафтавыя промыслы. Саляныя промыслы.* ‖ *прым.* **прамысло́вы**, -ая, -ае *і* **про́мыславы**, -ая, -ае. *Прамысловая (промыславая) рыба* (якая з'яўляецца прадметам промыслу). *Прамысловая (промыславая) кааперацыя.*

**ПРО́ПАВЕДЗЬ**, -і, *М* -ддзю, *мн.* -і, -яў, *ж.* **1.** Прамова рэлігійна-павучальнага зместу. *Сказаць п.* **2.** *перан., чаго.* Распаўсюджванне якіх-н. ідэй, поглядаў (кніжн.). *П. новых ідэй.*

**ПРО́ПАДАМ** (разм.). У выразе: **прападзі ты пропадам!** — вокліч у знач.: згінь, знікні (звычайна пры выказванні прыкрасці, раздражнення). *Прападзі ён п. са сваімі грашыма!*

**ПРО́ПІСЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Узоры правільнага і прыгожага пісьма. *Вучыцца пісаць па прописях.*

**ПРО́ПУСК**, -а *і* -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* прапусціць. **2.** -а. Дакумент на права ўваходу, уезду куды-н. *Паказаць п. Уваход па пропусках.* **3.** -а. Тое, што і пароль (спец.). **4.** -у. Няўка на сходы, заняткі і пад. *Наведваць лекцыі без пропускаў.* **5.** -у. Не запоўненае, не занятае чым-н. месца (напр., у тэксце чаго-н.). *У канспекце многа пропускаў.* ‖ *прым.* **прапускны́**, -а́я, -о́е.

**ПРО́РАЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Скразная прарэзаная адтуліна; жалабок. *П. прыцэла.* **2.** Від скразной разьбы (спец.). *Мастацкая п.*

**ПРО́РВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Стромкі і глыбокі абрыў; бездань. *Сарвацца ў прорву. На краі прорвы* (таксама перан.: на краі гібелі). **2.** *перан.* Прынцыповае разыходжанне ў чым-н. *Пасля гэтай спрэчкі паміж імі лягла п.* **3.** Вельмі вялікая колькасць каго-, чаго-н. (разм.). *Паспрабуй накарміць такую прорву. П. грошай.* **4.** Пра каго-, што-н., што паглынае, пажырае многа чаго-н. (разм., неадабр.). *Якая п.: не ўкарміць яго!*

**ПРО́СА**, -а, *н.* Збожжавы злак з мяцёлкавым суквеццем, з ачышчанага зерня якога атрымліваюць крупы. ‖ *прым.* **прася́ны́**, -а́я, -о́е. *Прасяная каша.*

**ПРО́СВІРКА** *гл.* прасвірка.

**ПРО́СВІРНЫ** *гл.* прасвірка.

**ПРО́СІНЬ**, -і, *ж.* (разм.). Сіні прасвет у афарбоўцы чаго-н. *Вочы шэрыя з просінню.*

**ПРО́СТА**. **1.** *прысл.* Прама, не зварочваючы ўбок. *Ідзіце п., потым звярніце налева.* **2.** *прысл.* Непасрэдна. *Пачнём п. са справы.* **3.** *чаго.* Сапраўды, на самай справе. *Гэтаму п. нельга паверыць.* **4.** *часц.* Толькі, не што іншае, як. *Гэта п. здзек.* **5.** *прысл.* Неяк выпадкова, без асаблівага намеру. *Зайшоў п. пагаварыць.* **6.** *прысл.* Наогул. *Дапамагалі родзічы і п. добрыя людзі.* ◊ **Проста так** — без асаблівых прычын, намеру (у 5 знач.). *Чаго ты прыйшоў? — Проста так.*

**ПРОСТАВАЛО́СЫ**, -ая, -ае (разм.). Без галаўнога ўбору. *Выбег на вуліцу п.*

**ПРОСТАНАРО́ДДЗЕ**, -я, *н., зб.* (уст.). Простыя людзі, якія належаць да непрывілеяваных класаў. *Выхадзец з простанароддзя.*

**ПРОСТАНАРО́ДНЫ**, -ая, -ае (уст.). Які належыць, уласцівы простаму, працоўнаму народу, непрывілеяваным класам. ‖ *наз.* **простанаро́днасць**, -і, *ж.*

**ПРО́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Аднародны па саставе, не састаўны. *Простае рэчыва.* **2.** Не складаны, не цяжкі, лёгка даступны для разумення. *Простае рашэнне.* **3.** Без асаблівых хітрасцей, не мудрагелісты. *Простае абсталяванне ў кватэры.* **4.** Не першасортны, грубы па якасці. *Мука простага памолу.* **5.** Які не вызначаецца сярод іншых, самы звычайны. *П. смертны. Простыя людзі жадаюць міру.* **6.** Звычайны, не заказны (пра пісьмо, бандэроль і пад.). **7.** Прастадушны, няхітры, не ганарлівы. *Не саромецеся яго, ён чалавек п.* **8.** Які належыць да непрывілеяваных класаў, не дваранскі (уст.). *П. народ.* **9.** Прамы, без выгібаў. *Дарога простая, як страла.* **10.** Пра каня: не спутаны (разм.). ○ **Простая мова** — у граматыцы: чужая мова, перададзеная без змен, ад імя гаворачага. ◊ **Простым вокам** — без дапамогі аптычных прыбораў. ‖ *памянш.* **про́сценькі**, -ая, -ае (да 2, 3 і 7 знач.). ‖ *наз.* **прастата́**, -ы́, *ДМ* -тце́, *ж.* (да 2, 3 і 7 знач.). ◊ **Святая прастата** — пра вельмі наіўнага чалавека.

**ПРО́СЫП**, -у, *м.* У выразе: **без просыпу** (разм.) — доўга і моцна. *Спаць без просыпу.*

**ПРО́СЬБА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Зварот да каго-н. з заклікам задаволіць якія-н. патрэбы, жаданні. *Звярнуцца з просьбай.*

**ПРОТА...** (а таксама **прата...**). Першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае: 1) першасны, першапачатковы, напр.: *протагісторыя, протанеаліт;* 2) старшынства ў царкоўным чыне, напр.: *протадыякан, протаіерэй.*

**ПРОТАГІСТО́РЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Дагістарычны перыяд жыцця чалавецтва. ‖ *прым.* **протагістары́чны**, -ая, -ае.

**ПРОТАДЫЯ́КАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У хрысціянскай царкоўнай епархіі: першы або галоўны дыякан. ‖ *прым.* **протадыя́канскі**, -ая, -ае.

**ПРОТАІЕРЭ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* У хрысціянскай царкоўнай епархіі: старшы святар (настаяцель) храма. ‖ *прым.* **протаіерэ́йскі**, -ая, -ае.

**ПРО́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Абломак іголкі, металічнага стрыжня.

**ПРО́ФІЛЬ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Від збоку (твару, прадмета). *Прыгожы п. твару. Сфатаграфавацца ў п.* **2.** Сячэнне, разрэз чаго-н. (спец.). *П. дарогі. П. сталі.* **3.** Сукупнасць спецыфічных рыс, якія характарызуюць якую-н. сферу дзейнасці, а таксама характар вытворчага ці навучальнага ўхілу (кніжн.). *Спецыяльнасць шырокага профілю. Раён збожжавага профілю. П. прадпрыемства.* ‖ *прым.* **про́фільны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Профільная пракатка металу.*

**ПРОЦІ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. процідзеяння чаму-н., напр.: *процідэсантны, процігрыпозны, проціпажарны.*

**ПРОЦІА́ТАМНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для абароны супраць атамнай зброі.

**ПРОЦІБО́РСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак., каму-чаму.* Змагацца супраць каго-, чаго-н., процідзейнічаць. *П. ворагу. П. злу.*

**ПРОЦІВА́ГА**, -і, *ДМ* -ва́зе, *ж.* **1.** Груз для ўраўнаважвання сіл, якія дзейнічаюць у машынах, збудаваннях (спец.). **2.** *перан.* Тое, што процідзейнічае, процістаіць чаму-н. іншаму. *Адна думка служыць процівагай іншай.* ◊ **У процівагу**, *прыназ. з Д* — у адрозненне ад каго-, чаго-н., супраць каго-, чаго-н. *Выставіць прапанову ў процівагу апаненту.*

**ПРОЦІВАГА́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльнае прыстасаванне для аховы органаў дыхання, вачэй і твару чалавека ад атрутных газаў, бактэрый, вірусаў. ‖ *прым.* **процівага́завы**, -ая, -ае (разм.).

**ПРОЦІВАГА́ЗАВЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для барацьбы са шкодным уздзеяннем атрутных газаў. *Процівагазавыя сродкі.*

**ПРОЦІДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каму-чаму.* Аказваць процідзеянне, супраціўленне.

**ПРОЦІДЗЕ́ЯННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Дзеянне, якое перашкаджае другому дзеянню. *П. варожай сіле. Дзеянне раўняецца процідзеянню.*

**ПРОЦІЗАКО́ННЫ**, -ая, -ае. Які супярэчыць закону. *Процізаконная дзейнасць.* ‖ *наз.* **процізако́ннасць**, -і, *ж.*

**ПРОЦІЗАЧА́ТКАВЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для прадухілення цяжарнасці. *Процізачаткавыя сродкі.*

**ПРОЦІЛЕ́ГЛАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* процілеглы. **2.** Прадмет або з'ява, процілеглыя другім, непадобныя да іншых па якіх-н. прыметах. *Адзінства і барацьба процілегласцей. Ён поўная п. свайму сябру.*

**ПРОЦІЛЕ́ГЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Размешчаны насупраць. *П. бераг.* **2.** Які супярэчыць чаму-н., поўнасцю не супадае з чым-н. *Процілеглыя тэндэнцыі.* ‖ *наз.* **проціле́гласць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ПРОЦІПАВЕ́ТРАНЫ**, -ая, -ае. Які дзейнічае супраць нападу з паветра. *Проціпаветраная ахова.*

**ПРОЦІПАКАЗА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (спец.). **1.** Паказанне, якое пярэчыць паказанню другога. **2.** Прымета, якая паказвае на шкоднасць прымянення якога-н. лякарства, лячэння. *Проціпаказанні супраць антыбіётыкаў.*

**ПРОЦІПАКА́ЗАНЫ**, -ая, -ае. Такі, якому ёсць проціпаказанне (у 2 знач.). *Проціпаказанае лякарства.*

**ПРОЦІПАСТА́ВІЦЬ**, -та́ўлю, -та́віш, -та́віць; -та́ўлены; *зак., каго-што, каму-чаму.* **1.** Параўнаць, указаўшы на розніцу, процілегласць прымет аднаго і другога. *П. новае мысленне ўстарэлым поглядам.* **2.** Процідзейнічаючы, накіраваць супраць каго-, чаго-н. *П. насіллю ўзброеную сілу.* ‖ *незак.* **проціпастаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **проціпастаўле́нне**, -я, *н.*

**ПРОЦІРАКЕ́ТНЫ**, -ая, -ае. ○ **Проціракетная абарона** — комплекс сіл і сродкаў, а таксама мерапрыемствы і баявыя дзеянні, накіраваныя на абарону супраць ракетнай зброі.

**ПРОЦІСТАЯ́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Месцазнаходжанне верхняй планеты ў пункце неба, процілеглым Сонцу.

**ПРОЦІСТАЯ́ЦЬ**, -таю, -таі́ш, -таі́ць; -таі́м, -таіце́, -тая́ць; -то́й; *незак., каму-чаму* (кніжн.). **1.** Супраціўляцца дзеянню чаго-н., захоўваючы ўстойлівае становішча. *П. ветру. П. чыйму-н. націску* (перан.). **2.** Быць проціпастаўленым, адрозніваецца па сутнасці.

**ПРОЦІТА́НКАВЫ**, -ая, -ае. Які дзейнічае супраць танкаў, абараняе ад танкаў. *Процітанкавая артылерыя. П. роў.*

**ПРОЦІХІМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Накіраваны на ахову ад баявых атрутных рэчываў. *Процівхімічныя сродкі.*

**ПРОЦІЯ́ДДЗЕ**, -я, *н.* Рэчыва, якое спыняе або аслабляе дзеянне яду; антыдот. *П. супраць коснасці* (перан., кніжн.).

**ПРО́ЦЬМА**, -ы, *ж.* **1.** Бездань, прорва (у 1 знач.; уст.). **2.** *перан., каго-чаго.* Вялікае мноства, безліч. *П. народу.*

**ПРО́ЧКІ**, -чак (разм.). Пакіданне на некаторы час сваёй хаты, сям'і з прычыны нязгоды, неладоў. *Пайсці ў п.*

**ПРО́ЧЫРК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рыска, пракрэсленае месца, якое абазначае пропуск чаго-н. *П. у анкеце.*

**ПРО́ШВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Карункавая або вышываная палоска, якую ўшываюць ў настольнік, ручнік і пад. *Яна цудоўна вышывала і пляла з нітак прошвы.*

**ПРО́ШЛЫ**, -ая, -ае. ○ **Прошлы час** — у граматыцы: форма дзеяслова, якая абазначае дзеянне, што адбывалася да моманту гаворкі пра яго або якога-н. іншага дзеяння ў мінулым.

**ПРО́ШЧА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Месца (узгорак, камень, возера, крыніца), надзеленае, паводле ўяўленняў вернікаў, надзвычайнымі надпрыроднымі сіламі і ўласцівасцямі. *Наведаць цудадзейную прошчу Сіняя Крыніца.*

**ПРУ́ГКІ**, -ая, -ае. **1.** Спружыністы, які прымае першапачатковую форму пасля сціскання або згінання. *П. мяч. Пругкія мускулы.* **2.** Пра рухі: моцны і плаўны. *П. крок. Пругкая паходка.* ‖ *наз.* **пру́гкасць**, -і, *ж.*

**ПРУСА́К**[1], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Рыжы таракан.

**ПРУСА́К**[2] *гл.* прусакі.

**ПРУСАКІ́**, -о́ў, *адз.* -са́к, -а́, *м.* Ураджэнцы або жыхары Прусіі, былой нямецкай правінцыі. ‖ *ж.* **пруса́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (разм.). ‖ *прым.* **пру́скі**, -ая, -ае.

**ПРУТ**, -а, *М* пру́це, *мн.* пруты́, -о́ў, *м.* **1.** Тонкая палка без сучча. *Асінавы п.* **2.** Тонкі металічны стрыжань, кавалак дроту. *Жалезны п.* ‖ *памянш.* **пруто́к**, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м. і* **пру́цік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **прутко́вы**, -ая, -ае (да 2 знач.) *і* **пруцяны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.). *Прутковы каркас. Пруцяная агароджа.*

**ПРУ́ТКІ**, -ая, -ае. **1.** Тое, што і *пругкі. Пруткія галіны дрэва.* **2.** Жорсткі, цвёрды. *Калошы былі мокрыя і пруткія.* ‖ *наз.* **пру́ткасць**, -і, *ж.*

**ПРУТО́К**, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* **1.** *гл.* прут. **2.** Вязальная спіца. ‖ *прым.* **прутко́вы**, -ая, -ае.

**ПРУЦЯНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Станавіцца нягнуткім; карчанець. *П. ад холаду.* ‖ *зак.* **апруцяне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (разм.) *і* **спруцяне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (разм.).

**ПРЫ**, *прыназ. з М.* **1.** Каля чаго-н. *Пры доме быў сад.* **2.** Указвае на падпарадкаваныя, падсобныя адносіны да чаго-н., аднесенасць да чаго-н. *Лабараторыя пры інстытуце. Служыць пры штабе. Сядзелка пры цяжкахворым.* **3.** Указвае на наяўнасць чаго-н. у каго-н. *Трымаць дакументы пры сабе. Быць пры зброі. Пры жаданні ўсяго можна дабіцца.* **4.** Указвае на час, абставіны, становішча. *Чытаць пры настольнай лямпе. Заявіць пры сведках. Быць пры памяці. Пры выпадку завітаю да вас.*

**ПРЫ...**, *прыстаўка.* **I.** Ужыв. пры ўтварэнні дзеясловаў са знач.: 1) давядзення дзеяння да канчатковай мэты, напр.: *прыйсці, прыхіліцца, прывалачыся;* 2) дабаўлення, зближэння, змацавання чаго-н. з чым-н., напр.: *прыбіць, прырабіць, прыбудаваць, прыдрукаваць, прыкласці, прышыць;* 3) накіравання дзеяння к сабе, у сваіх інтарэсах, напр.: *прывабіць, прысвоіць;* 4) накіравання дзеяння на прадмет зверху ўніз, напр.: *прымяць, прыціснуць;* 5) паўнаты, вычарпанасці дзеяння, напр.: *прывучыць, прыахвоціць;* 6) непаўнаты слабай меры дзеяння, напр.: *прыглушыць, прысыпаць, прыадчыніць;* 7) у дзеясловах на -оўва, -ва — суправаджальнага дзеяння, напр.: *прыгаворваць, прытанцоўваць.* **II.** Ужыв. пры ўтварэнні: 1) назоўнікаў і прыметнікаў са знач. непасрэднага прымыкання да чаго-н., напр.: *прылесак, прыбярэжны, прыазёрны, прыгранічны;* 2) назоўнікаў са знач. дадатковасці, напр.: *прыплод, прыпёк.*

**ПРЫАДЗЕ́ЦЬ**, -е́ну, -е́неш, -е́не; -е́нь; -е́ты; *зак., каго (што).* Адзець у добрае адзенне, прыбраць (разм.). *П. дзяўчыну.* ‖ *звар.* **прыадзе́цца**, -е́нуся, -е́нешся, -е́нецца.

**ПРЫАДКРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́ецца; *зак.* Трохі адкрыцца. *Заслона прыадкрылася.* ‖ *незак.* **прыадкрыва́цца**, -а́ецца.

**ПРЫАДКРЫ́ЦЬ**, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак., што.* Трохі адкрыць. *П. рот.* ‖ *незак.* **прыадкрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫАДЧЫНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́ніцца; *зак.* Тое, што і *прачыніцца.* ‖ *незак.* **прыадчыня́цца**, -я́ецца.

**ПРЫАДЧЫНІ́ЦЬ**, -ыню́, -ы́ніш, -ы́ніць; -ы́нены; *зак., што.* Тое, што і *прачыніць.* ‖ *незак.* **прыадчыня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПРЫАХВО́ЦІЦЬ**, -о́чу, -о́ціш, -о́ціць; -о́чаны; *зак., каго (што) і да чаго* (разм.). Выклікаць у каго-н. ахвоту да чаго-н. *П. дзяцей да чытання.* ‖ *незак.* **прыахво́чваць**,

-аю, -аеш, -ае. || *звар.* **прыахво́ціцца**, -о́чуся, -о́цішся, -о́ціцца; *незак.* **прыахво́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫБА́ВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* **1.** Паявіцца ў дадатак. *Людзей на вуліцах прыбавілася.* **2.** Стаць большым. *Дзень прыбавіўся. П. ў вазе.* || *незак.* **прыбаўля́цца**, -я́ецца. || *наз.* **прыбаўле́нне**, -я, *н. П. сям'і* (пра нараджэнне ў сям'і дзіцяці).

**ПРЫБА́ВІЦЬ**, -а́ўлю, -а́віш, -а́віць; -а́ўлены; *зак.* **1.** *каго-што* і *чаго.* Даць, пакласці, зрабіць, сказаць у дадатак да чаго-н. *П. дзвесце рублёў. П. цукру ў ягады. П. да сказанага.* **2.** *чаго.* Павялічыць памер, колькасць, хуткасць чаго-н. *П. грошай. П. кроку.* ◊ **Прыбавіць у вазе** (разм.) — патаўсцець, стаць цяжэйшым. || *незак.* **прыбаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **прыбаўле́нне**, -я, *н.* *і* **прыба́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПРЫБА́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** *гл.* прыбавіць. **2.** Прыбаўленая сума, колькасць чаго-н. *Атрымаць прыбаўку.* || *прым.* **прыба́вачны**, -ая, -ае. ○ **Прыбавачная вартасць** — частка вартасці, якая ствараецца наёмным рабочым звыш вартасці рабочай сілы.

**ПРЫБЕ́ГЧЫ**, -бягу́, -бяжы́ш, -бяжы́ць; -бяжы́м, -бежыце́, -бягу́ць; -бе́г, -гла; -бяжы́; *зак.* Дасягнуць якога-н. месца бягом. *П. першым.* || *незак.* **прыбяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫБЕ́ДНІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* (разм., неадабр.). Прыкінуцца бедным, няшчасным. || *незак.* **прыбядня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПРЫБЕРАГЧЫ́**, -агу́, -ажэ́ш, -ажэ́; -ажо́м, -ажаце́, -агу́ць; -бяро́г, -берагла́; -ажы́; -ажо́ны; *зак., што.* Захаваць, схаваць, адклаўшы на запас. *П. грошы на пакупку.* || *незак.* **прыберага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫБІРА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* **1.** Пакой у тэатры, дзе акцёры адзяваюцца, рыхтуюцца да выхаду на сцэну. *Акцёрская п.* **2.** Памяшканне для адпраўлення натуральных патрэб. *Грамадская п.*

**ПРЫБІРА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца прыбіраннем, навядзеннем чысціні ва ўстановах, на прадпрыемствах. || *ж.* **прыбіра́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. || *прым.* **прыбіра́льшчыцкі**, -ая, -ае.

**ПРЫБІРА́ННЕ** *гл.* прыбраць.

**ПРЫБІРА́ЦЦА** *гл.* прыбрацца.

**ПРЫБІРА́ЦЬ** *гл.* прыбраць.

**ПРЫБІ́ЦЦА**, -б'ю́ся, -б'е́шся, -б'е́цца; -б'ёмся, -б'яце́ся, -б'ю́цца; -бі́ся; *зак.* (разм.). **1.** Доўга ідучы, блукаючы, дабрацца куды-н. *П. да незнаёмага хутара.* **2.** *каго-чаго.* Далучыцца, пайсці следам за кім-н. *Чужая авечка прыбілася да чарады.* || *незак.* **прыбіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫБІ́ЦЬ**, -б'ю́, -б'е́ш, -б'е́; -б'ём, -б'яце́, -б'ю́ць; -бі́; -бі́ты; *зак.* **1.** *што.* Прымацаваць цвікамі. *П. маснічыну.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Шчыльна прыціснуць. *Траву прыбіла ліўнем да зямлі.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Сунучы, штурхаючы, давесці куды-н. *Хваляй прыбіла лодку да берага.* **4.** *каго.* Моцна пабіць (разм.). *П. злодзея да паўсмерці.* || *незак.* **прыбіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—3 знач.). || *наз.* **прыбіва́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **прыбі́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 знач.; разм.).

**ПРЫБЛІ́ЖАНЫ**[1], -ая, -ае. Не зусім дакладны, прыблізны. *Прыбліжанае рашэнне. Прыбліжана* (прысл.) *падлічыць.* || *наз.* **прыблі́жанасць**, -і, *ж.*

**ПРЫБЛІ́ЖАНЫ**[2], -ая, -ае. Які блізка стаіць да высокапастаўленай асобы, карыстаецца яе даверам. *Прыбліжаныя асобы. Манарх і яго прыбліжаныя* (наз.).

**ПРЫБЛІ́ЗІЦЦА**, -і́жуся, -і́зішся, -і́зіцца; *зак.* Стаць больш блізкім (у 1 і 5 знач.). *П. да дзвярэй. Прыблізіўся дзень ад'езду. П. да лепшых узораў.* || *незак.* **прыбліжа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. || *наз.* **прыбліжэ́нне**, -я, *н.*

**ПРЫБЛІ́ЗІЦЬ**, -і́жу, -і́зіш, -і́зіць; -і́жаны; *зак., каго-што.* Паставіць блізка; зрабіць больш блізкім (у 1, 4 і 5 знач.). || *незак.* **прыбліжа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **прыбліжэ́нне**, -я, *н.*

**ПРЫБЛІ́ЗНЫ**, -ая, -ае. Не зусім дакладны, больш-менш блізкі да сапраўднага. *Прыблізныя звесткі. Падлічыць прыблізна* (прысл.). || *наз.* **прыблі́знасць**, -і, *ж.*

**ПРЫБЛУ́ДА**, -ы, *Д* -у, *Т* -ам, *М* -дзе, *м.*; *ДМ* -дзе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -аў (разм.). **1.** Чужы, не тутэйшы чалавек. **2.** Аб прыблуднай жывёліне.

**ПРЫБЛУ́ДНЫ**, -ая, -ае (разм.). Які выпадкова зайшоў куды-н., апынуўся дзе-н. (у чужым месцы, доме, статку). *Прыблудная авечка.*

**ПРЫБЛЫ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Тое, што і *прыплесці* (у 2 знач.). || *незак.* **прыблы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫБО́Й**, -ю, *м.* Марскія хвалі, якія б'юць у бераг. *Час прыбою.* || *прым.* **прыбо́йны**, -ая, -ае.

**ПРЫБО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Набор прылад для чаго-н. *Чарнільны п. Чайны п.* **2.** Прыстасаванне, спецыяльнае ўстройства, апарат для выканання якой-н. работы, рэгулявання, кантролю і пад. *Вымяральны п. Награвальныя прыборы.* || *прым.* **прыбо́рны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.).

**ПРЫБОРАБУДАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Галіна машынабудавання, што вырабляе вымяральныя прыборы, сродкі апрацоўкі інфармацыі, аўтаматычныя і аўтаматызаваныя сістэмы кіравання. **2.** Галіна навукі і тэхнікі, якая распрацоўвае сродкі аўтаматызацыі і сістэмы кіравання. || *прым.* **прыборабуда́ўнічы**, -ая, -ае.

**ПРЫБРА́ЦЦА**, -бяру́ся, -бярэ́шся, -бярэ́цца; -бяро́мся, -берацё́ся, -бяру́цца; -бра́ўся, -ра́лася; -бяры́ся; *зак.* **1.** Адзецца прыгожа, лепш, чым звычайна. *П. як на вяселле.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., у што* і *без дап.* Пакрыцца чым-н., упрыгожыцца. *Горад прыбраўся к святу.* **3.** Прывесці ў парадак што-н., зрабіць уборку чаго-н. або давесці да ладу што-н. (разм.). || *незак.* **прыбіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫБРА́ЦЬ**, -бяру́, -бярэ́ш, -бярэ́; -бяро́м, -берацé, -бяру́ць; -бра́ў, -ра́ла; -бяры́; -бра́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Адзець прыгожа, лепш, чым звычайна; упрыгожыць. *П. галаву кветкамі.* **2.** *што* і *без дап.* Прывесці ў парадак. *П. у хаце. П. на стале.* **3.** *што.* Прыняць адкуль-н. *П. посуд са стала.* ◊ **Прыбраць да рук** *каго-што* (разм.) — цалкам падпарадкаваць сабе каго-н. або завалодаць чым-н., захапіць сабе што-н. || *незак.* **прыбіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **прыбо́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* *і* **прыбіра́нне**, -я, *н.*

**ПРЫБРЫСЦІ́**, -рыду́, -рыдзе́ш, -рыдзе́; -рыдзём, -рыдзяце́, -рыду́ць; -ры́ў, -рыла́, -ло́; -рыдзі́; *зак.* (разм.). Брыдучы, прыйсці куды-н.

**ПРЫБУДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак., што.* Прыбудаваць у дадатак да чаго-н. *П. трысцен да хаты.* || *незак.* **прыбудо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **прыбудо́ва**, -ы, *ж.* *і* **прыбудо́ўванне**, -я, *н.*

**ПРЫБУДО́ВА**, -ы, *ж.* **1.** *гл.* прыбудаваць. **2.** *мн.* -ы, -до́ў. Прыбудаваны будынак. *Драўляная п.*

**ПРЫБЫ́ТАК**, -тку, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Сума, на якую даход перавышае выдаткі. *Чысты п.* **2.** Абагульняючы паказчык фінансавых вынікаў гаспадарчай дзейнасці прадпрыемства. **3.** *перан.* Карысць, выгада (разм.). *Які п. нам з гэтага?* **4.** Пра з'яўленне патомства (у сям'і, гаспадарцы і пад.; разм.). *Чакаць прыбытку ў хаце.*

**ПРЫБЫТКО́ВЫ**, -ая, -ае. Які прыносіць прыбытак; выгадны. *Прыбытковая галіна гаспадаркі. Прыбыткова* (прысл.) *прадаць што-н.* || *наз.* **прыбытко́васць**, -і, *ж.*

**ПРЫБЫ́ЦЬ**, -бу́ду, -бу́дзеш, -бу́дзе; -бы́ў, -была́, -ло́; -бу́дзь; *зак.* **1.** Прыйсці, прыехаць (афіц.). *Цягнік прыбыў своечасова. П. да месца прызначэння.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Павялічыцца, прыбавіцца. *Вада прыбыла.* || *незак.* **прыбыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **прыбыццё**, -я́, *н.* (да 1 знач.) *і* **прыбыва́нне**, -я, *н. Расклад прыбыцця цягнікоў.*

**ПРЫБЯГА́ЦЬ** *гл.* прыбегчы.

**ПРЫБЯДНЯ́ЦЦА** *гл.* прыбедніцца.

**ПРЫВА́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак.* **1.** *каго (што).* Імітуючы голас або прыцягваючы ўвагу якой-н. прынадай, паклікаць, прымусіць наблізіцца. *П. глушца. П. ваўка.* **2.** *каго-што.* Прымусіць звярнуць увагу на што-н. або прыйсці куды-н. *Святло ў акне прывабіла нас. Пах смажанага прывабіў мяне на кухню.* **3.** *каго (што).* Выклікаць да сябе сімпатыю, прыхільнасць, станоўчыя адносіны. *П. сваёй знешнасцю.* **4.** *перан., каго (што).* Стаць для каго-н. заманлівым, прыемным. *Яго прывабіла добрая пасада.* || *незак.* **прыва́бліваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **прыва́бліванне**, -я, *н.*

**ПРЫВА́БЛІВЫ**, -ая, -ае. Які прываблівае да сябе сваімі якасцямі, уласцівасцямі. *Прываблівая знешнасць.* ‖ *наз.* **прыва́блівасць**, -і, *ж.*

**ПРЫВА́БНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вабіць, прыцягвае да сябе якімі-н. якасцямі, рысамі; прыемны з выгляду, мілавідны. *Прывабныя рысы твару.* **2.** Прыемны, мілы. *П. голас. Прывабная ўсмешка.* **3.** Які вабіць чым-н., выклікае цікавасць. *Прывабная прафесія.* ‖ *наз.* **прыва́бнасць**, -і, *ж.*

**ПРЫВА́ГА**, -і, *ДМ* -ва́зе, *ж.* (спец.). Колькасць вагі, якая прыбавілася. *Сярэднясутачная п. свіней.*

**ПРЫВАДНІ́ЦЦА**, -аднюся, -о́днішся, -о́дніцца; *зак.* Пра лятальны апарат, парашутыста: апусціцца на ваду. ‖ *незак.* **прывадня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **прывадне́нне**, -я, *н.*

**ПРЫВАДНЫ́** *гл.* прывод[2].

**ПРЫВАЗНЫ́**, -а́я, -о́е. Прывезены адкуль-н., не мясцовы. *Прывазная сыравіна.*

**ПРЫВА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* прываліць[1]. **2.** Прыпынак у дарозе для адпачынку, а таксама месца прыпынку. *Зрабіць п.* ‖ *прым.* **прыва́льны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПРЫВАЛАЧЫ́**, -лаку́, -лачэ́ш, -лачэ́; -лачо́м, -лачаце́, -лаку́ць; -ло́к, -лакла́, -ло́; -лачы́; -ло́чаны; *зак., каго-што.* Даставіць валочачы. *П. мех.* ‖ *незак.* **прывалака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫВАЛІ́ЦЬ**[1], -алю́, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены; *зак.* **1.** *каго-што.* Прыперці, прыхіліць да чаго-н. або прыціснуць зверху чым-н. *П. камень да сцяны.* **2.** Прыстаць да берага, да прыстані (спец.). *Параход прываліў да прыстані.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* З'явіцца, прыйсці (разм.). *Шчасце прываліла ў хату. Прываліла многа народу.* ‖ *незак.* **прыва́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыва́льванне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **прыва́л**, -у, *м.* (да 2 знач.).

**ПРЫВАЛІ́ЦЬ**[2], -алю́, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены; *зак., што.* Трохі, не поўнасцю зваліць (сукно). ‖ *незак.* **прыва́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫВА́ЛЬНЫ** *гл.* прывал.

**ПРЫВАРАЖЫ́ЦЬ**, -ажу́, -о́жыш, -о́жыць; -о́жаны; *зак., каго (што).* **1.** У забабонных уяўленнях: прывабіць варажбой. **2.** *перан.* Зачараваўшы, прывабіць да сябе (разм.). ‖ *незак.* **прываро́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫВА́РАК**, -рку, *м.* Гатаваная страва; таксама прадукты харчавання, у тым ліку заправа, якія выкарыстоўваюцца пры гатаванні гарачых страў. *П. у боршч.* ‖ *прым.* **прыва́рачны**, -ая, -ае.

**ПРЫВАРЫ́ЦЬ**, -ару́, -а́рыш, -а́рыць; -а́раны; *зак., што.* Прырабіць, зварваючы. *П. ручку да металічнага каўша.* ‖ *незак.* **прыва́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыва́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж. і* **прыва́рванне**, -я, *н.*

**ПРЫВА́Т-ДАЦЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* У вышэйшых навучальных установах да рэвалюцыі: пазаштатны выкладчык, роўны па званні дацэнту, а таксама асоба, якая мела гэта званне. ‖ *прым.* **прыва́т-дацэ́нцкі**, -ая, -ае.

**ПРЫВА́ТНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Прыватная, не тыповая акалічнасць, падрабязнасць. *Звярніце ўвагу на п.* ◊ **У прыватнасці**, *пабочн. сл.* — ужыв. для падкрэслівання якога-н. прыватнага выпадку, у знач.: напрыклад, у тым ліку.

**ПРЫВАТНАЎЛА́СНІЦКІ**, -ая, -ае. Тое, што і *прыватны* (у 3 знач.). *Прыватнаўласніцкая гаспадарка.*

**ПРЫВА́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Прыватны гандляр, прадпрыемец. ‖ *ж.* **прыва́тніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **прыва́тніцкі**, -ая, -ае.

**ПРЫВА́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца асобнай часткай чаго-н., не агульны, не тыповы. *П. вывад. Заключэнне ад агульнага да прыватнага* (наз.). *П. факт.* **2.** Асабісты, не грамадскі, не дзяржаўны. *Прыватная тэлеграма. Прыватная справа.* **3.** Які належыць пэўнай асобе, не грамадству, не дзяржаве. *Прыватная ўласнасць. П. заказ.* **4.** Які мае адносіны да асабістага, індывідуальнага валодання, дзейнасці, гаспадаркі і адносін, якія адсюль вынікаюць. *Прыватнае жыццё.* ○ **Прыватная пастанова** (спец.) — пастанова, якая выносіцца судом па пытанні, што не падлягае яго кампетэнцыі.

**ПРЫВЕ́ЗЦІ**, -язу́, -язе́ш, -язе́; -язём, -езяце́, -язу́ць; -ёз, -е́зла; -язі́; -е́зены; *зак., каго-што.* Даставіць, завезці. ‖ *незак.* **прыво́зіць**, -о́жу, -о́зіш, -о́зіць. ‖ *наз.* **прыво́з**, -у, *м. і* **прыво́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (разм.).

**ПРЫВЕ́СІЦЬ**, -е́шу, -е́сіш, -е́сіць; -е́шаны; *зак., што.* Прымацаваць у вісячым становішчы. *П. лямпу да столі.* ‖ *незак.* **прыве́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыве́шванне**, -я, *н.*

**ПРЫВЕСЛАВА́ЦЬ**, -яслу́ю, -яслу́еш, -яслу́е; -яслу́й; *зак.* Наблізіцца, вяслуючы. *П. да берага.* ‖ *незак.* **прывясло́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫВЕ́СЦІ**, -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзём, -ведзяце́, -вяду́ць; -вёў, -вяла́, -ло́; -вядзі́; -ве́дзены; *зак.* **1.** *каго (што).* Ведучы, памагчы дайсці. *П. дзяцей дадому.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каго (што).* Паслужыць шляхам да чаго-н. *Сляды прывялі паляўнічых да нары. Сцежка прывяла на паляну.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., каго (што), да чаго.* Давесці да якога-н. выніку, стаць прычынай чаго-н. *Новыя факты прывялі вучонага да важнага адкрыцця. Усё гэта можа п. да вялікіх непрыемнасцей.* **4.** *каго-што* і *ў што.* Зрабіць што-н. (што ўказана назоўнікам). *П. ў захапленне. П. прыгавор у выкананне. П. ў належны выгляд.* **5.** *каго.* Даць прыплод, нарадзіць (разм.). *Свіння прывяла адзінаццаць парасят.* **6.** *што.* Паведаміць для падмацавання чаго-н., напомніць. *П. выказванне вучонага. П. прыклад.* ‖ *незак.* **прыво́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **прывядзе́нне**, -я, *н.* (да 3, 4, 6 знач.) *і* **прыво́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 знач.; спец.).

**ПРЫВЕ́ТЛІВЫ**, -ая, -ае. Добразычлівы, гасцінны, ветлівы. *П. гаспадар. Прыветліва* (прысл.) *сустрэць гасцей.* ‖ *наз.* **прыве́тлівасць**, -і, *ж.*

**ПРЫ́ВІД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вобраз каго-, чаго-н., што бачыцца ва ўяўленні. *Начныя прывіды.* **2.** Ледзь акрэсленыя рысы чаго-н.; контуры. *Аддаленыя прывіды зарыва.*

**ПРЫ́ВІДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца прывідам, параджэннем хворага ўяўлення. *П. малюнак.* **2.** *перан.* Які існуе ва ўяўленні; несапраўдны. *Прывіднае шчасце.* ‖ *наз.* **пры́віднасць**, -і, *ж.*

**ПРЫВІЛЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* гіст. Заканадаўчы акт у Вялікім Княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай і іншых феадальных дзяржавах. *Віленскі п.*

**ПРЫВІЛЕ́Я**, -і, *мн.* -і, -ле́й, *ж.* Выключнае права, ільгота. *Прывілеі ветэранам вайны.*

**ПРЫВІЛЕЯВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які карыстаецца прывілеямі. *Прывілеяванае саслоўе.* **2.** Лепшы, больш выгадны ў параўнанні з іншым. *Паставіць каго-н. у прывілеяванае становішча.* ‖ *наз.* **прывілеява́насць**, -і, *ж.*

**ПРЫВІТА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Словы, рух, жэст, звернутыя да каго-н. як знак добразычлівасці, дружалюбнасці, добрага пажадання і пад. *Адказаць на чыё-н. п. Перадаць п.* **2.** *нязм.* Зварот да блізкага знаёмага пры сустрэчы (разм.). *П.! Куды крочыш?* **3.** Вусны або пісьмовы зварот да каго-н. з выказваннем асабістай прыязнасці, добрага пажадання, салідарнасці і пад. *Гарачае п. абаронцам Радзімы. Паслаць п. юбіляру* ‖ *прым.* **прывіта́льны**, -ая, -ае.

**ПРЫВІТА́ЦЦА** *гл.* вітацца.

**ПРЫВІТА́ЦЬ** *гл.* вітаць.

**ПРЫВІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., прыўе́цца; -віўся, -віла́ся, -ло́ся; *зак.* Стаць звычайным, замацавацца. *Прывіліся навыкі да фізічнай працы.* ‖ *незак.* **прывіва́цца**, -а́ецца.

**ПРЫВІ́ЦЬ**, -ыўю́, -ыўе́ш, -ыўе́; -ыўём, -ыўяце́, -ыўю́ць; -віў, -віла́, -ло́; -ві́; -ві́ты; *зак., што каму.* Прымусіць засвоіць, зрабіць звычайным. *П. культурныя навыкі.* ‖ *незак.* **прывіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прывіццё**, -я́, *н.*

**ПРЫВО́Д**[1], -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* прывесці. **2.** Прымусовая дастаўка ў органы следства або ў суд тых, хто не з'явіўся па выкліку, а таксама часовы арышт для допыту (афіц.). *Хуліган ужо мае некалькі прыводаў у міліцыю.*

**ПРЫВО́Д**[2], -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Механізм або сістэма механізмаў для прывядзення ў рух розных машын. *Электрычны п.* ‖ *прым.* **прывадны́**, -а́я, -о́е. *П. пас.*

**ПРЫВО́ДЗІЦЬ** *гл.* прывесці.

**ПРЫВО́З**, -у, *м.* **1.** *гл.* прывезці. **2.** Тое, што прывезена, прывезеныя тавары (разм.). *Вялікі п.*

**ПРЫВО́ЗІЦЬ** *гл.* прывезці.

**ПРЫВО́ЗКА** *гл.* прывезці.

**ПРЫВО́ЛЛЕ**, -я, *н.* **1.** Шырокае адкрытае месца, прастора. *Лугавое п.* **2.** Поўная свабода, вольнае жыццё. *Тут п. для дзіцячых гульняў.*

**ПРЫВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Свабодны, прасторны. *Прывольныя палі.* **2.** Пра ўмовы жыцця: вольны, нічым не абмежаваны. *Прывольнае жыццё. Прывольна* (прысл.) *жывецца.* ‖ *наз.* **прыво́льнасць**, -і, *ж.*

**ПРЫВУЧЫ́ЦЬ**, -учу́, -у́чыш, -у́чыць; -у́чаны; *зак., каго (што), да каго-чаго* і *з інф.* Прымусіць прывыкнуць да каго-, чаго-н., навучыць чаму-н., выпрацаваць навык да чаго-н. *П. да парадку.* ‖ *незак.* **прывуча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **прывы́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **прывучы́цца**, -учу́ся, -у́чышся, -у́чыцца; *незак.* **прывуча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **прывы́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **прывучэ́нне**, -я, *н. і* **прывы́чванне**, -я, *н.*

**ПРЫВЫКА́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Наяўнасць прывычкі да чаго-н. (звычайна пра лекавыя сродкі). *П. да снатворнага.*

**ПРЫВЫ́КЛЫ**, -ая, -ае. Які прывык да чаго-н., мае прывычку да чаго-н. *Прывыклае да шуму вуха.*

**ПРЫВЫ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; прывы́к, -кла; -ні; *зак.* **1.** *да чаго* і *з інф.* Набыць прывычку да чаго-н. *П. рана ўставаць.* **2.** *да каго-чаго.* Асвоіцца з кім-, чым-н. *П. да новых знаёмых.* ‖ *незак.* **прывыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прывыка́нне**, -я, *н.*

**ПРЫВЫ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Засвоеная на працягу часу схільнасць, манера паводзін, дзеянняў, якая стала звычайнай, пастаяннай. *Дрэнная п. Увайшло ў прывычку займацца гімнастыкай. Узяць у прывычку.* **2.** Навык, уменне, набытае вопытам. *Без прывычкі касіць цяжка.*

**ПРЫВЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаў прывычкай. *П. ўклад жыцця.* **2.** Вядомы, добра знаёмы, такі, да якога прывык. *Прывычныя з дзяцінства мясціны. Прывычныя сцэны.* **3.** Які прывык, прывучыўся да чаго-н. (разм.). *Рукі, прывычныя да ўсякай працы.* ‖ *наз.* **прывы́чнасць**, -і, *ж.*

**ПРЫВЯДЗЕ́ННЕ** *гл.* прывесці.

**ПРЫВЯЗА́ЦЦА**, -яжу́ся, -я́жашся, -я́жацца; -яжы́ся; *зак.* (разм.). **1.** Прымацавацца да чаго-н. вяроўкай. *П. поясам да слупа.* **2.** *перан., да каго-чаго.* Пачаць дакучаць, прыставаць. *П. з пытаннямі.* **3.** *перан., да каго-чаго* або *за кім-чым.* Пачаць неадступна ісці за кім-, чым-н. *Сабака прывязаўся да хлопчыка.* ‖ *незак.* **прывя́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫВЯЗА́ЦЬ**, -яжу́, -я́жаш, -я́жа; -яжы́; -я́заны; *зак.* **1.** *што* і *да чаго.* Прымацаваць, завязваючы. *П. лейцы да канавязі.* **2.** *каго-што да каго-чаго.* Прымацаваць, злучаючы рэменем, вяроўкай і пад. *П. каня да дрэва.* **3.** *перан., што да чаго.* У думках злучыць, суаднесці з чым-н. *П. пабудову да мясцовасці.* ‖ *незак.* **прывя́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прывя́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж. і* **прывя́званне**, -я, *н.*

**ПРЫВЯЗНЫ́**, -а́я, -о́е. Які мае прыстасаванне для прывязвання, такі, які можна прывязаць. *Прывязныя лыжы.*

**ПРЫ́ВЯЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* У спалучэннях: **на прывязі, на прывязь, з прывязі** і пад.: тое, чым хто-н. прывязаны (рэмень, ланцуг і пад.). *Трымаць сабаку на прывязі. Хадзіць на прывязі.*

**ПРЫВЯРЗЦІ́СЯ** *гл.* вярзціся.

**ПРЫВЯСЛО́ЎВАЦЬ** *гл.* прывеславаць.

**ПРЫГАВАРЫ́ЦЬ**, -ару́, -о́рыш, -о́рыць; -о́раны; *зак., каго (што)* і *да чаго.* Вынесці абвінаваўчы прыгавор каму-н. *П. да турэмнага зняволення.* ‖ *незак.* **прыгаво́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫГАВО́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Рашэнне, вынесенае судом пасля разбору судовай справы. *Абвінаваўчы п. Апраўдальны п. П. абскарджанню не падлягае.* **2.** *перан.* Увогуле пастанова, рашэнне, меркаванне з ацэнкай чаго-н. *Суровы п. гісторыі.*

**ПРЫГАВО́РВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; *незак.* Гаварыць, робячы што-н., суправаджаць што-н. словамі. *Біць і п.*

**ПРЫГАВО́РВАЦЬ**[2] *гл.* прыгаварыць.

**ПРЫГАВО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Вострыя, забаўныя словы, славазлучэнні, якія ўстаўляюцца ў гаворку. *Гаварыць з прыгаворкамі.*

**ПРЫГАДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Прыйсці на памяць, успомніцца. *Прыгадалася далёкае мінулае.* ‖ *незак.* **пры-га́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫГАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Прыпомніць, узнавіць у памяці. *П. падрабязнасці здарэння.* **2.** *каго-што.* Напомніць, навесці на ўспамін. *Гэта пісьмо прыгадала мне мінулае.* **3.** *што* і *каму.* Прыпомніць зробленае кім-н., каб адпомсціць, пакараць за гэта (разм.). *Мы гэта табе яшчэ прыгадаем!* ‖ *незак.* **пры-га́дваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ПРЫГАЖО́СЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Сукупнасць якасцей, што прыносяць асалоду позірку, слыху; усё прыгожае, чароўнае. *Горад выключнай прыгажосці. Вызначацца прыгажосцю.* **2.** *мн.* Прыгожыя, чароўныя мясціны. *Прыгажосці прыроды.* **3.** *толькі Н.* Пра што-н. прыемнае, што прыносіць задавальненне (разм.). *Надыхаліся лясным паветрам, адпачылі. П.!*

**ПРЫГАЖУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Прыгожы чалавек. **2.** *перан.* Пра што-н. вельмі прыгожае. *П.-цеплаход.* ‖ *памянш.* **прыга-жу́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.; разм.). ‖ *ж.* **прыгажу́ня**, -і, *мн.* -і, -жунь.

**ПРЫГАЖЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* Станавіцца прыгожым, прыгажэйшым. *Прыгажэе родны край.* ‖ *зак.* **папрыгажэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е.

**ПРЫГАЛУ́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., каго (што).* Прылашчыць (разм.). *П. дзіця.* ‖ *незак.* **прыгалу́бліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫГАНЯ́ТЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Памешчыцкі слуга, які наглядаў за працай сялян у час прыгону; цівун (уст.).

**ПРЫГАНЯ́ЦЬ**[1] *гл.* прыгнаць[1].

**ПРЫГАНЯ́ЦЬ**[2] *гл.* прыгнаць[2].

**ПРЫ́ГАРАД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пасёлак, які прымыкае да тэрыторыі вялікага горада. **2.** У Старажытнай Русі: горад, падпарадкаваны палітычна і гаспадарча галоўнаму гораду вобласці. *Прыгарады Вялікага Ноўгарада.* ‖ *прым.* **пры́гарадны**, -ая, -ае.

**ПРЫ́ГАРАДНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* прыгарад. **2.** Які знаходзіцца, размешчаны ў прыгарадзе, у наваколлі горада. *П. жыхар. П. завод.* **3.** Пра транспарт: не далёкі, які абслугоўвае блізкія ад горада раёны. *П. аўтобус.*

**ПРЫГАРНУ́ЦЦА**, -арну́ся, -о́рнешся, -о́рнецца; -арні́ся; *зак., да каго-чаго.* З ласкаю, пяшчотай прытуліцца. *П. да шчакі маці.* ‖ *незак.* **прыго́ртвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫГАРНУ́ЦЬ**, -арну́, -о́рнеш, -о́рне; -арні́; -о́рнуты; *зак.* **1.** *што.* Прыгрэбці, зграбаючы, сабраць каля чаго-н. *П. жар да чыгункоў.* **2.** *што чым.* Прыкрыць, прысыпаць чым-н. *П. зямлёй карэнне.* **3.** *каго (што).* З ласкаю, пяшчотай прытуліць да сябе. *П. дачку.* ‖ *незак.* **прыго́ртваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫ́ГАРШЧЫ**, -аў. **1.** Складзеныя разам у выглядзе акругленага ёмішча абедзве далоні так, каб можна было туды чаго-н. насыпаць, наліць. *Падставіць п.* **2.** Колькасць чаго-н., якая ўмяшчаецца ў складзеныя такім чынам далоні. *Цэлыя п. арэхаў.*

**ПРЫГАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які прыгарэў, падпаліўся. *Прыгарэлыя скваркі.* ‖ *наз.* **пры-гарэ́ласць**, -і, *ж.*

**ПРЫГАРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́ць; *зак.* **1.** Пра печанае, смажанае: трохі абгарэць, абвугліцца. *Бульба прыгарэла.* **2.** Пра вадкую страву, кашу: пры варцы, кіпячэнні пачаць пахнуць дымам, гарам або прыстаць, прыліпнуць да пасудзіны. *Малако прыгарэла. Каша прыгарэла да гаршка.* ‖ *незак.* **прыгара́ць**, -а́е *і* **прыга́рваць**, -ае.

**ПРЫГАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць, вырабіць што-н. або згатаваць, падрыхтаваць для спажывання, яды. *П. цэментны раствор. П. вячэру.* **2.** *што* і *чаго.* Прывесці ў стан годнасці для ўжытку; падрыхтаваць загадзя. *П. калёсы ў дарогу. П. корму свінням.* ‖ *незак.* **прыгато́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫГІНА́ЦЦА** *гл.* прыгнуцца.

**ПРЫГІНА́ЦЬ** *гл.* прыгнуць.

**ПРЫГЛА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Гладзячы, зрабіць роўным. *П. валасы. П. стыль* (перан.). ‖ *незак.* **прыгла́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **пры-гла́джванне**, -я, *н.*

**ПРЫМУДРЫ́ЦЦА**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; -ры́мся, -рыце́ся, -ра́цца; *зак.* Злаўчыцца, змагчы зрабіць што-н. *Як ты прымудрыўся туды залезці?*

**ПРЫ́МУЛА**, -ы, *мн.* -ы, -мул, *ж.* Невялікая дэкаратыўная і дзікарослая травяністая расліна з трубчастымі кветкамі; першацвет.

**ПРЫМУРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Прыбудаваць што-н. з каменю, цэглы.

**ПРЫМУ́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* Выступ печы, на якім можна сядзець ці ставіць што-н. ‖ *прым.* **прыму́рачны**, -ая, -ае.

**ПРЫ́МУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для награвання і прыгатавання ежы з помпай, якая падае гаручае (газу) у гарэлку. *Шыпеў п. на кухні.* ‖ *прым.* **пры́мусны**, -ая, -ае.

**ПРЫМУ́САМ**, *прысл.* Сілай, прымушэннем. *П. даставіць на лячэнне наркамана.* У выразе: **пад прымусам** (наз.) — уздзейнічаць сілай, розумам і пад. на каго-, што-н. з якой-н. мэтай. *Працаваць пад прымусам.*

**ПРЫМУ́СІЦЬ**, -у́шу, -у́сіш, -у́сіць; -у́шаны; *зак., каго (што) да чаго* і *з інф.* Абавязаць, патрабаваць зрабіць што-н. *Ніхто мяне не прымусіць ехаць туды.* ‖ *незак.* **прымуша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пры́му́с**, -у, *м.* і **прымушэ́нне**, -я, *н.*

**ПРЫМУСО́ВЫ**, -ая, -ае. Які праводзіцца, робіцца па прымусе. *Прымусовыя работы.* ‖ *наз.* **прымусо́васць**, -і, *ж.*

**ПРЫМУСО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм., неадабр.). Прымусовая работа; тое, што робіцца па прымусе.

**ПРЫ́МХІ**, -аў, *адз.* пры́мха, -і, *ДМ* -мсе, *ж.* Забабоны, забабонныя прыметы.

**ПРЫ́МХЛІВЫ**, -ая, -ае. Прасякнуты прымхамі, заснаваны на прымхах. *П. чалавек.* ‖ *наз.* **пры́мхлівасць**, -і, *ж.*

**ПРЫМЧА́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца; -чы́ся; *зак.* Прыехаць, прыбегчы вельмі хутка. *Прымчаўся конны атрад.*

**ПРЫ́МЫ**, -аў. Пражыванне мужчыны пасля жаніцьбы ў сям'і жонкі. *Пайсці ў п.*

**ПРЫМЫКА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* прымкнуць. **2.** У граматыцы: падпарадкавальная сінтаксічная сувязь паміж членамі словазлучэння, пры якой незмяняльныя словы (прыслоўі, дзеепрыслоўі, інфінітывы) і форма ступені параўнання сэнсава і граматычна залежаць ад іншых адзінак. *П. прыслоўя да дзеяслова.*

**ПРЫМЫКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* прымкнуць. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Размяшчацца зусім побач. *Сенажаць прымыкае да возера.*

**ПРЫМЯНІ́МЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна прымяняць. *П. спосаб.* ‖ *наз.* **прымяні́масць**, -і, *ж.*

**ПРЫМЯНІ́ЦЬ**, -мяню́, -ме́ніш, -ме́ніць; -ме́нены; *зак., што.* Ажыццявіць на справе. *П. веды на практыцы.* ‖ *незак.* **прымяня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **прымяне́нне**, -я, *н.*

**ПРЫМЯНША́ЦЬ** *гл.* прыменшыць.

**ПРЫМЯНШЭ́ННЕ** *гл.* прыменшыць.

**ПРЫМЯНЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна прымяняць. *П. метад.* ‖ *наз.* **прымяня́льнасць**, -і, *ж.*

**ПРЫМЯРА́ЦЬ** *гл.* прымераць.

**ПРЫМЯРЗА́ННЕ** *гл.* прымерзнуць.

**ПРЫМЯРЗА́ЦЬ** *гл.* прымерзнуць.

**ПРЫМЯРКО́ЎВАЦЦА** *гл.* прымеркавацца.

**ПРЫМЯРКО́ЎВАЦЬ** *гл.* прымеркаваць.

**ПРЫМЯ́ЦЬ**, -мну́, -мне́ш, -мне́; -мнём, -мняце́, -мну́ць; -мні́; -мя́ты; *зак., каго-што.* Прыціснуўшыся зверху, трохі змяць. *П. траву.* ‖ *незак.* **прыміна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫМЯЧА́ЦЬ** *гл.* прымеціць.

**ПРЫМЯША́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -ме́шаны; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Дадаць змешваючы. *П. саломы ў гліну.* **2.** Ублытаць, уцягнуць дарэмна (разм.). *Навошта вы мяне прымяшалі да гэтай справы?* ‖ *незак.* **прыме́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫНА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -на́д, *ж.* Кавалак ежы, а таксама (перан.) усё тое, што прываблівае. *П. для рыбы.* ‖ *прым.* **прына́дны**, -ая, -ае.

**ПРЫНА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго (што).* **1.** Прыцягваючы ўвагу кормам, прынадай, прымусіць наблізіцца. *П. птушку.* **2.** Прывучыць да каго-, чаго-н. ласкай, увагай; выклікаць сімпатыю да сабе. *Прынадзіла дзяцей з усёй вуліцы.* ‖ *незак.* **прына́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прына́джванне**, -я, *н.*

**ПРЫНАЗО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У граматыцы: службовае слова, з дапамогай якога выражаюцца адносіны паміж галоўнымі і залежнымі кампанентамі словазлучэння, напр.: *ад* (сцяны), *па* (полі), *перад* (домам) і пад. ‖ *прым.* **прыназо́ўнікавы**, -ая, -ае. *Прыназоўнікавае словазлучэнне.*

**ПРЫНАЛЕ́ЖНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *да чаго.* Знаходжанне ў складзе чаго-н., уваходжанне ў склад чаго-н. (кніжн.). *П. да якой-н. арганізацыі, партыі, класа.* **2.** Неад'емная ўласцівасць, прымета каго-, чаго-н. *Дапытлівасць — п. маладосці.*

**ПРЫНАЛЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які належыць да чаго-н., уваходзіць у склад чаго-н. *Быць прыналежным да арганізацыі.* **2.** У граматыцы: які выражае прыналежнасць да каго-, чаго-н. *П. займеннік* (мой, твой, іхні і пад.).

**ПРЫНА́МСІ**, *пабочн. сл.* Ва ўсякім разе. *Я, п., чую ўпершыню пра гэта.*

**ПРЫНЕ́СЦІ**, -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; -нясём, -несяце́, -нясу́ць; -нёс, -не́сла; -нясі́; -не́сены; *зак.* **1.** *каго-што.* Несучы, даставіць. **2.** *перан., што.* З'явіцца прычынай, даць у выніку. *П. карысць. П. заспакаенне. Напружаная праца прынесла свае вынікі.* **3.** *што.* Зрабіць, ажыццявіць што-н., што ўказана назоўнікам. *П. клятву* (паклясціся). *П. падзяку* (падзякаваць). *П. ў ахвяру што-н.* (ахвяраваць). **4.** *каго (што); безас.* і ў спалучэнні са словамі «д'ябал», «чорт», «нячыстая». Пра нечаканы, непажаданы прыход, з'яўленне каго-н. (разм.). *Які чорт прынёс сюды гэту кампанію! Каго там прынесла нячыстая ў такі час?* ‖ *незак.* **прыно́сіць**, -о́шу, -о́сіш, -о́сіць. ‖ *наз.* **прынясе́нне**, -я, *н.* (да 2 і 3 знач.) *і* **прыно́с**, -у, *м.* (да 1 знач.; разм.).

**ПРЫНІ́ЖАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Уніжаны, зняважаны або які выказвае пакорлівасць. *П. тон. П. выгляд.* **2.** Бяспраўны, зняважлівы. ‖ *наз.* **прыні́жанасць**, -і, *ж.*

**ПРЫНІ́ЗІЦЬ**, -і́жу, -і́зіш, -і́зіць; -і́жаны; *зак., каго-што.* **1.** Паставіць у зняважальнае становішча. **2.** Зменшыць значэнне каго-, чаго-н. *П. чый-н. аўтарытэт.* ‖ *незак.* **прыніжа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прыніжэ́нне**, -я, *н.*

**ПРЫНІ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні́к, -кла; -ні; *зак., да каго-чаго.* Прыціснуцца, прыпасці. *П. да зямлі.* ‖ *незак.* **прыніка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫНО́С** *і* **ПРЫНЯСЕ́ННЕ** *гл.* прынесці.

**ПРЫНО́СІЦЬ** *гл.* прынесці.

**ПРЫ́НТАР**, -ра, *мн.* -ы, -аў, *м.* Перыферыйная прылада камп'ютара, прызначаная для пераводу тэксту або графікі на фізічны носьбіт; друкарка. ‖ *прым.* **пры́нтарны**, -ая, -ае.

**ПРЫНУ́КА**, -і, *ДМ* -ну́цы, *мн.* -і, -ну́к, *ж.* Прымус, прымушэнне. *Выконваць усё без прынукі.*

**ПРЫНУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго (што).* Прымушаць, патрабаваць. *П. да работы.* ‖ *наз.* **прынука́нне**, -я, *н.*

**ПРЫНЦ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тытул члена каралеўскага дома (у Заходняй Еўропе), а таксама асоба, якая носіць гэты тытул. ‖ *ж.* **прынцэ́са**, -ы, *мн.* -ы, -цэ́с.

**ПРЫ́НЦЫП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Асноўнае, зыходнае палажэнне якой-н. тэорыі, вучэння, навукі і пад. *Прынцып прававой дзяржавы. Прынцыпы мастацтва.* **2.** Перакананне, погляд на рэчы. *Мець цвёрдыя жыццёвыя прынцыпы.* **3.** Асноўная асаблівасць канструкцыі чаго-н. *Гучнагаварыцелі зроблены па прынцыпе тэлефона.* ◊ **У прынцыпе** — у асноўным, у агульных рысах. *У прынцыпе я згодзен.*

**ПРЫНЦЫПО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які датычыць прынцыпаў. *Прынцыповае пытанне.* **2.** Які прытрымліваецца цвёрдых прынцыпаў. *П. чалавек. Прынцыповая крытыка.* **3.** Які датычыць чаго-н. толькі ў асноўным. *Прынцыповая згода на што-н.* ‖ *наз.* **прынцыпо́васць**, -і, *ж.*

**ПРЫНЮ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Прывыкнуць да якога-н. паху. *П. да тытунёвага дыму.* **2.** Унюхваючыся, пастарацца вызначыць што-н. па паху, распазнаць якія-н. пахі. *Прынюхаўся — пахла смажанай рыбай.* ‖ *незак.* **прыню́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫНЯВО́ЛІЦЬ** *гл.* няволіць.

**ПРЫНЯ́ЦЦА**, прыму́ся, пры́мешся, пры́мецца; прыня́ўся, -нялася, -ло́ся; прымі́ся; *зак.* **1.** *за што* і *з інф.* Пачаць што-н. рабіць, узяцца за што-н. *П. за справу. П. пісаць заяву.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пусціць карані, прыжыцца. *Прышчэпак прыняўся.* || *незак.* **прыма́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫНЯ́ЦЬ**, прыму́, пры́меш, пры́ме; прыня́ў, -няла́, -ло́; прымі́; прыня́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Прыбраць, занесці, пераставіць у іншае месца. *П. посуд у шафу.* **2.** *каго-што.* Узяць, атрымаць тое, што хто-н. дае, перадае, здае; узяць у сваё распараджэнне. *П. тэлеграму. П. тавар. Камісія прыняла новы дом.* **3.** *што.* Узяць пад сваё кіраўніцтва, заняць (якую-н. пасаду). *П. брыгаду. П. пост дырэктара.* **4.** *каго (што).* Уключыць у склад чаго-н., допусціць да ўдзелу ў чым-н. *П. на працу. П. у інстытут.* **5.** *каго (што).* Дапусціць, пусціць да сябе з якой-н. мэтай (для размовы, для агляду, у якасці госця, жыльца і пад.). *П. пасла. П. наведвальніка. П. гасцей. Урач прыняў хворую. Добра п. каго-н.* (добра аднесціся, добра сустрэць). **6.** *што.* Успрыняць. *П. вестку без энтузіязму. П. да ведама што-н. П. на свой рахунак што-н.* (як што-н., што адносіцца да сябе). *П. да сэрца што-н.* **7.** *што.* Згадзіцца з чым-н., аднесціся да чаго-н. станоўча. *П. параду. П. чыё-н. запрашэнне.* **8.** *што.* Зацвердзіць, галасаваннем выразіць згоду з чым-н. *П. закон. П. пастанову. Праект прыняты.* **9.** *што.* Выканаць, ажыццявіць (тое, што выражана наступным назоўнікам). *П. рашэнне* (рашыць). *П. смерць* (памерці). *П. прысягу. П. меры. П. на сябе абавязак што-н. зрабіць.* **10.** *што.* Стаць уладальнікам якога-н. звання, сану, падданым (якой-н. дзяржавы). *П. беларускае грамадзянства.* **11.** *што.* Набыць які-н. выгляд, асаблівасці. *П. позу. Столік прыняў выгляд чарцёжнага стала.* **12.** *што.* Падвергнуць сябе якой-н. гігіенічнай, лячэбнай працэдуры. *П. душ. П. курс лячэння.* **13.** *што* і *чаго.* Выпіць, праглынуць (лякарства). *П. мікстуру.* **14.** *каго-што* і *за каго-што.* Прызнаць, палічыць. *П. каго-н. за іншага.* **15.** Прасунуцца трохі ў якім-н. напрамку (разм.). *Калона прыняла ўправа.* **16.** *што.* Зразумеўшы, паўтарыць (спец.). *П. сігнал.* **17.** *каго (што).* Аказаць дапамогу пры родах. *П. дзіця.* ◊ **Прыняць бой** — не ўхіліцца ад бою, што ўзнік па ініцыятыве праціўніка. **Прыняць ласку** — аказаць гонар, уважыць (зайшоўшы, завітаўшы і пад.). **Прыняць экзамен (залік** і пад.) *у каго* — правесці вучэбную праверку. || *незак.* **прыма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **прыма́нне**, -я, *н.*, **прыём**, -у, *м.* (да 2, 4, 5, 13 і 16 знач.), **прыёмка**, -і, *ДМ* -мцы, *ж.* (да 2 знач.; спец.) *і* **прыня́цце**, -я, *н.* (да 2, 3, 8—11, 14 і 16 знач.). *Гасцінны прыём. Тэлеграфістка перайшла на прыём. Прыёмка тавараў. Прыняцце рэзалюцыі.* || *прым.* **прыёмачны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **прыёмны**, -ая, -ае (да 1, 4 і 5 знач.). *Прыёмачная камісія* (якая прымае гатовы аб'ект). *Прыёмны пункт. Прыёмная радыёстанцыя. Прыёмныя экзамены. Прыёмная камісія* (якая прымае абітурыентаў; у 2 знач.). *Прыёмны дзень.*

**ПРЫ́ПАВЕСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Тое, што і *прытча.*

**ПРЫПАДАБНЕ́ННЕ** *гл.* прыпадобніцца, прыпадобніць.

**ПРЫПАДАБНЯ́ЦЦА** *гл.* прыпадобніцца.

**ПРЫПАДАБНЯ́ЦЬ** *гл.* прыпадобніць.

**ПРЫПА́ДАК**, -дку, *мн.* -дкі, -дкаў, *м.* Раптоўнае і моцнае праяўленне якой-н. хваробы або якога-н. пачуцця. *П. эпілепсіі.* || *прым.* **прыпа́дачны**, -ая, -ае.

**ПРЫПАДА́ЦЬ** *гл.* прыпасці.

**ПРЫПА́ДАЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* прыпадак. **2.** У якога бываюць прыпадкі якой-н. хваробы. *Што ты крычыш, як прыпадачны* (наз.).

**ПРЫПАДНЯ́ЦЬ**, -дніму́, -дні́меш, -дні́ме; -дні́мі́ *і* -дыму́, -ды́меш, -ды́ме; -дымі́; -дня́ты; *зак., каго-што.* Злёгку падняць. *П. хворага на ложку.* || *незак.* **прыпаднімáць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **прыпадымáць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *звар.* **прыпадня́цца**, -дніму́ся, -дні́мешся, -дні́мецца *і* -дыму́ся, -ды́мешся, -ды́мецца; *незак.* **прыпаднімáцца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **прыпадымáцца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫПАДО́БНІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак., каго-чаго.* Стаць падобным да каго-, чаго-н. || *незак.* **прыпадабня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. || *наз.* **прыпадабне́нне**, -я, *н.*

**ПРЫПАДО́БНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што* і *да каго-чаго.* Параўноўваючы, зрабіць, уявіць падобным да каго-, чаго-н. || *незак.* **прыпадабня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **прыпадабне́нне**, -я, *н.*

**ПРЫПА́ЕЧНЫ** *гл.* прыпаяць.

**ПРЫПАЗНІ́ЦЦА**, -пазню́ся, -по́знішся, -по́зніцца; *зак.* Трохі спазніцца. *Сёлета вясна прыпазнілася.* || *незак.* **прыпазня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПРЫПА́Й**, -ю, *м.* Прымёрзлы да берага лёд. || *прым.* **прыпа́йны**, -ая, -ае.

**ПРЫПА́ЙВАННЕ** *і* **ПРЫПА́ЙКА** *гл.* прыпаяць.

**ПРЫПА́ЙВАЦЬ** *гл.* прыпаяць.

**ПРЫПА́ЙНЫ** *гл.* прыпай, прыпаяць.

**ПРЫПАЛІ́ЦЬ**, -алю́, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены; *зак., што.* **1.** Запаліць ад ужо запаленага. *П. лучыну.* **2.** Трохі падпаліць (разм.). *П. піраг. П. валёнкі пры сушцы.* **3.** Прыкурыць (разм.). || *незак.* **прыпа́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫПА́ЛЫ**, -ая, -ае. Які прыпаў да чаго-н., апусціўся. *Прыпалыя да зямлі галінкі.*

**ПРЫПАМІНА́ЦЦА** *гл.* прыпомніцца.

**ПРЫПАМІНА́ЦЬ** *гл.* прыпомніць.

**ПРЫПА́Р**, -у, *м.* **1.** Гарачыня ад нагрэтага сонцам паветра. *Паўдзённы п.* **2.** Напружаная летняя праца ў час касьбы, жніва. *Жніўны п. Экзаменацыйны п.* (перан.). || *прым.* **прыпа́рны**, -ая, -ае. *Прыпарная пара.*

**ПРЫПА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Лекавы сродак, які прыкладваецца да хворага месца гарачым. *Як мёртваму п.* (паможа, патрэбна і пад.; пра што-н. бескарыснае, непатрэбнае; разм.). || *прым.* **прыпа́рачны**, -ая, -ае.

**ПРЫПА́СЦІ**, -аду́, -адзе́ш, -адзе́; -адзём, -адзяце́, -аду́ць; -а́ў, -а́ла; -адзі́; *зак.* **1.** *да каго-чаго.* Нізка нахіліцца, апусціцца, прыціснуцца. *Галіны прыпалі да долу. П. да матчыных грудзей.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыйсціся, супасці з чым.-н. у часе. *Свята прыпала на пятніцу.* **3.** *безас.* Тое, што і *выпасці* (у 4 знач.). *Прыпала спаткацца з цяжкім горам.* || *незак.* **прыпада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫПА́СЫ**, -аў. Прадукты, матэрыялы, нарыхтаваныя ў запас. *Харчовыя п. Агнястрэльныя п.* (снарады, патроны).

**ПРЫПАЎЗЦІ́**, -зу́, -зе́ш, -зе́; -зём, -зяце́, -зу́ць; прыпо́ўз, -паўзла́, -ло́; -зі́; *зак.* Дабрацца куды-н. паўзком. *П. да хаты.* || *незак.* **прыпаўза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫПА́ХВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак., чым* і *без дап.* (разм.). Аддаваць якім-н. непрыемным пахам. *Мяса прыпахвае* (пачынае псавацца).

**ПРЫПАЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *што.* Прырабіць паяннем. *П. ручку да чайніка.* **2.** *што* і *каму.* Вынесці судовае рашэнне ў адносінах да каго-н. (разм., неадабр.). *Яму прыпаялі пяць гадоў турмы.* || *незак.* **прыпа́йваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **прыпа́йванне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **прыпа́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.* (да 1 знач.). || *прым.* **прыпа́йны**, -ая, -ае *і* **прыпа́ечны**, -ая, -ае.

**ПРЫПЕ́РЦІ**, -пру́, -прэ́ш, -прэ́; -пром, -праце́, -пру́ць; -пёр, -пе́рла; -пры́; -пёрты; *зак.* (разм.). **1.** Тое, што і *прыціснуць* (у 1 знач.). *П. да плота. П. да сцяны каго-н.* (таксама перан.: паставіць у становішча, з якога няма выйсця). **2.** *што* і *чым.* Зачыніўшы, приставіць шчыльна што-н., каб не адчынялася. *П. дзверы калом.* **3.** *каго-што.* Прынесці на сабе (што-н. цяжкае; разм.). *Прыпёр цэлы мяшок бульбы.* **4.** Прыйсці (разм.). *Ён прыпёр за пяць кіламетраў.* **5.** *безас.* Вельмі захацецца; тэрмінова спатрэбіцца (разм., груб.). *Так прыпёрла табе ехаць сёння.* || *незак.* **прыпіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—3 знач.).

**ПРЫПЕ́РЦЦА**, -пру́ся, -прэ́шся, -прэ́цца; -про́мся, -праце́ся, -пру́цца; прыпёрся, -пе́рлася; -пры́ся; *зак.* **1.** *чым да каго-чаго.* Стаўшы або сеўшы блізка да каго-, чаго-н., абаперціся верхняй часткай тулава на каго-, што-н. *П. спінай да дзвярэй.* **2.** Тое, што і прыперці (у 4 знач.; разм.). *Чаго ты сюды прыпёрся?* **3.** Знайсці пристанішча, прыстроіцца дзе-н. (разм.). *Гэтаму чалавеку няма дзе часова п.* || *незак.* **прыпіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫПЕ́Ў**, -еву, *мн.* -е́вы, -е́ваў, *м.* Частка песні, якая паўтараецца пасля кожнага куплета. *Вясёлы п.*

**ПРЫПЕ́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -пе́вак, *ж.* Кароткая, звычайна чатырохрад-

кавая песня жартаўлівага або сатырычнага зместу. *А за песні, за прыпеўкі палюбілі мяне дзеўкі.*

**ПРЫ́ПЕЧАК**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* Месца перад чалеснікамі печы.

**ПРЫПЁК**[1], -у, *м.* Прыбаўка ў вазе хлеба пасля выпечкі ў параўнанні з вагой затрачанай мукі. *Значны п.*

**ПРЫПЁК**[2], -у, *м.* Месца, дзе моцна прыпякае сонца. *Легчы на прыпёку.*

**ПРЫПІРА́ЦЦА** *гл.* прыперціся.

**ПРЫПІРА́ЦЬ** *гл.* прыперці.

**ПРЫПІСА́ЦЬ**, -ішу́, -і́шаш, -і́ша; -ішы́; -і́саны; *зак.* **1.** *што.* Напісаць у дадатак да чаго-н. *П. некалькі слоў.* **2.** *каго-што.* Прылічыць (у 2 знач.) запісаўшы. *П. да прызыўнога ўчастка.* **3.** *што* і *каму-чаму.* Палічыць вынікам чаго-н., зыходным ад каго-, чаго-н., прыналежным каму-н. *Поспех акцёра прыпісалі яго прыгажосці. П. верш не таму, хто складаў.* ‖ *незак.* **прыпі́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыпі́ска**, -і, *ДМ* -сцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.) *і* **прыпі́сванне**, -я, *н.* (да 3 знач.).

**ПРЫПІ́СКА**, -і, *ДМ* -пісцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** *гл.* прыпісаць. **2.** Дадатак да напісанага. *П. другім чарнілам.* **3.** часцей *мн.* Заведама завышаныя, несапраўдныя паказчыкі поспехаў вытворчасці, выканання плана і пад. *Барацьба з прыпіскамі.*

**ПРЫПІСНЫ́**, -а́я, -о́е (афіц.). Прылічаны да якой-н. установы, прадпрыемства; які сведчыць пра такое прылічэнне. *Прыпіснoе пасведчанне.*

**ПРЫПЛА́ТА**, -ы, *ДМ* -лаце, *ж.* **1.** *гл.* прыплаціць. **2.** Прыплачаная сума. *Вялікая п.*

**ПРЫПЛАЦІ́ЦЬ**, -ачу́, -а́ціш, -а́ціць; -а́чаны; *зак., што.* Заплаціць у дадатак, звыш якой-н. платы. *П. семдзесят рублёў.* ‖ *незак.* **прыпла́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыпла́та**, -ы, *ДМ* -лаце, *ж. і* **прыпла́чванне**, -я, *н.*

**ПРЫПЛЕ́СЦІ**, -ляту́, -ляце́ш, -ляце́; -ляцём, -лецяце́, -лятуць; -лёў, -ляла́, -ло́; -ляці́; -ле́цены; *зак.* **1.** *што.* Далучыць уплятаючы. *П. стужку да вянка.* **2.** *перан., каго-што.* Ублытаць у што-н., упамянуць дарэмна (разм.). *Прыплялі і маё імя да гэтай справы.* ‖ *незак.* **прыплята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫПЛЕ́СЦІСЯ**, -лятуся, -ляце́шся, -ляце́цца; -ляцёмся, -лецяце́ся, -лятуцца; -лёўся, -ляла́ся, -ло́ся; -ляці́ся; *зак.* (разм.). Прыйсці куды-н. з цяжкасцю, паволі. *Прыплёўся дадому.*

**ПРЫПЛО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Патомства ў жывёл. *Штогодні п. авечак.* ‖ *прым.* **прыпло́дны**, -ая, -ае.

**ПРЫПЛЫ́СЦІ** *і* **ПРЫПЛЫ́ЦЬ**, -ыву́, -ыве́ш, -ыве́; -ывём, -ывяце́, -ывуць; -ы́ў, -ыла́, -ло́; *зак.* Дасягнуць чаго-н. плывучы. *П. да вострава.* ‖ *незак.* **прыплыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫПЛЮСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., што* (разм.). Складаючы лікі, дадаць да агульнай сумы, а таксама наогул далучыць. ‖ *незак.* **прыплюсо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫПЛЮ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Націснуўшы, зрабіць плоскім, трохі сплюшчыць. *П. галоўку цвіка. Прыплюснуты нос* (шырокі і плоскі). **2.** *што.* Прышчурыць, прыкрыць (павекі). *П. вейкі.*

**ПРЫПЛЮ́ШЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Прыкрыць павекамі (вока, вочы). *П. вока.* ‖ *незак.* **прыплю́шчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫПЛЯСКА́ЦЬ**, -ляшчу́, -ле́шчаш, -ле́шча; -ляшчы́; -ляска́ны; *зак., што.* **1.** Пляскаючы, зрабіць плоскім, роўным. *П. кучу гліны.* **2.** Прыбіць, прыгнуць да чаго-н., прыціснуць уніз. *Град прыпляскаў да зямлі ячмень.*

**ПРЫПО́Й**, -ю, *м.* (спец.). Метал або сплаў для паяння. ‖ *прым.* **прыпо́йны**, -ая, -ае.

**ПРЫПО́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ніжні пярэдні край сукенкі, кашулі і пад. *Несці яблыкі ў прыполе.*

**ПРЫПО́МНІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* **1.** Прыйсці на памяць. *Прыпомніўся мудры выраз.* **2.** *каму.* Не забыцца, не даравацца. *Гэта ўсё табе прыпомніцца!* ‖ *незак.* **прыпаміна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫПО́МНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *зак.* **1.** *каго-што.* Успомніць, аднавіць у памяці. *П. празвішча даўняга знаёмага.* **2.** *што* і *каму.* Не забыць зробленага кім-н., каб адпомсціць, пакараць за гэта (разм.). *Я гэта табе прыпомню!* ‖ *незак.* **прыпаміна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 знач.).

**ПРЫПРА́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́ў, *ж.* Тое, чым прыпраўляюць страву для смаку. *Вострая п.* ‖ *прым.* **прыпра́вачны**, -ая, -ае.

**ПРЫПРА́ВІЦЬ**, -а́ўлю, -а́віш, -а́віць; -а́ўлены; *зак., што.* **1.** *чым.* Прыбавіць чаго-н. для смаку (да стравы). *П. суп таматам.* **2.** Прыладзіць, прымацаваць. *П. пастронкі да ворчыка.* ‖ *незак.* **прыпраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПРЫПРАЖНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Такі, якога прыпрагаюць. *П. конь.* **2.** *у знач. наз.* **прыпражны́**, -о́га, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.* Конь, запрэжаны ў прыпрэжку.

**ПРЫПРЭ́ГЧЫ**, -рагу́, -ражэ́ш, -ражэ́; -ражо́м, -ражаце́, -рагуць; -ро́г, -рэ́гла; -ражы́; -рэ́жаны; *зак., каго-што.* Упрэгчы яшчэ, дадаткова. *П. яшчэ аднаго каня.* ‖ *незак.* **прыпрага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫПРЭ́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* Запрэжка коней збоку ад аглабель для дапамогі кораннiку. *Запрагаць у прыпрэжку.*

**ПРЫПУ́ДРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). Злёгку напудрыць сабе твар. ‖ *незак.* **прыпу́дрывацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫПУ́ДРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* (разм.). Крыху, злёгку напудрыць. *П. твар.* ‖ *незак.* **прыпу́дрываць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫПУЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **ПРЫПУЖНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго (што)* (разм.). Злёгку напужаць, прыгразіць з мэтай уздзеяння. *Прыпужаць пакараннем. Прыпужнуць вымовай.* ‖ *незак.* **прыпу́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫПУСЦІ́ЦЦА**, -пушчу́ся, -пу́сцішся, -пу́сціцца; *зак.* (разм.). **1.** Пайсці, пабегчы хутка; паскорыць хаду, крок; пачаць што-н. рабіць, пусціцца. *П. за кім-н. П. бягом. П. ў скокі. П. бегчы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і узмацніцца. *Дождж прыпусціўся.* ‖ *незак.* **прыпуска́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫПУСЦІ́ЦЬ**, -ушчу́, -у́сціш, -у́сціць; -у́шчаны; *зак.* **1.** *каго (што)* і *да каго.* Дапусціць да злучкі, да ссання малака (спец.). *П. жарабка. П. цяля да каровы.* **2.** *што* і *чаго.* Выпусціць затрыманае. *Карова малака не прыпусціла.* **3.** Пабегчы хутчэй (разм.). *П. наўздагон.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць ісці з большай сілай (разм.). *Дождж прыпусціў.* **5.** *што.* Зрабіць шырэйшым, даўжэйшым (спец.). *П. сукенку ў падоле.* ‖ *незак.* **прыпуска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пры́пуск**, -а, *м.* (да 1 і 5 знач.).

**ПРЫПУ́ХЛАСЦЬ**, -і, *ж.* Невялікая пухліна. *П. павек.*

**ПРЫПУ́ХЛЫ**, -ая, -ае. Які трохі прыпух. *Прыпухлыя губы.*

**ПРЫПУ́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -пу́х, -хла; *зак.* Трохі ўспухнуць. *Шчака прыпухла.* ‖ *незак.* **прыпуха́ць**, -а́е.

**ПРЫПЫ́НАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* **1.** Часовы перапынак у якім-н. дзеянні, часовае спыненне чаго-н. *Зрабіць п. на паляне. Скакаць без прыпынку.* **2.** Месца, дзе прыпыняецца аўтобус, трамвай, поезд і пад. для пасадкі і высадкі пасажыраў. *Аўтобусны п.* **3.** Месца, якое можа служыць прыстанішчам, прытулкам. *Знайсці сабе п.* ○ **Знакі прыпынку** — графічныя знакі (кропка, коска, двукроп'е і г.д.), якія расстаўляюцца ў пісьмовай мове паводле пэўных правіл для сэнсавага і (часткова) інтанацыйнага члянення тэксту. ‖ *прым.* **прыпы́начны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.; спец.). *П. механізм. П. пункт.*

**ПРЫПЫНІ́ЦЦА**, -пынюся, -пы́нішся, -пы́ніцца; *зак.* **1.** Часова, ненадоўга спыніцца або перарвацца. *П. каля вітрыны. Цягнік прыпыніўся на паўстанку. Работа прыпынілася.* **2.** Знайсці прыпынак дзе-н. *Дзе ён прыпыніўся з сям'ёй на першы час?* ‖ *незак.* **прыпыня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПРЫПЫНІ́ЦЬ**, -пыню́, -пы́ніш, -пы́ніць; -пы́нены; *зак., каго-што.* Часова спыніць, затрымаць; сцішыць, зменшыць скорасць руху. *П. машыну. П. каня. П. гаворку.* ‖ *незак.* **прыпыня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **прыпыне́нне**, -я, *н.*

**ПРЫПЯВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* (разм.). Суправаджаць што-н. нягучнымі спевамі. *П. жнучы.* ◊ **Жыць прыпяваючы** (разм.) — жыць весела і добра.

**ПРЫПЯЧА́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). **1.** Запячатаць чым-н. *П. сургучом.* **2.** Паставіць пячатку на чым-н. *П. дакумент.* **3.** *перан.* Моцна прыціснуць, прыбіць. *Моцны дождж прыпячатаў траву.* ‖ *незак.* **прыпяча́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫПЯЧЫ́**, -пяку́, -пячэ́ш, -пячэ́; -пячо́м, -печаце́, -пяку́ць; -пёк, -пякла́, -ло́; -пячы́; -пе́чаны; *зак.* **1.** *што.* Патрымаўшы доўга на агні, жары, падпаліць; злёгку спячы, апячы. *П. пірагі. П. руку прасам.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Моцна прыгрэць (пра сонца). *К поўдню прыпякло* (безас.). **3.** *перан., безас., каму.* Прыйсціся цяжка, крута. *Яму тут добра прыпякло.* **4.** *што.* Змазаць чым-н. пякучым. *П. парэз ёдам.* ‖ *незак.* **прыпяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прыпяка́нне**, -я, *н.*

**ПРЫРАБІ́ЦЬ**, -раблю́, -ро́біш, -ро́біць; -ро́блены; *зак.* **1.** *што* і *да чаго.* Прымацаваць, трывала злучыць з чым-н. *П. ручку да форткі.* **2.** *што* і *да чаго.* Прыбудаваць да чаго-н. *П. дашчаную пуню да хлява.* **3.** *што, чаго* і *без дап.* Зарабіць у дадатак да асноўнага заработку. *П. на пагрузцы вагонаў.* **4.** *што.* Прыбавіць вязаннем. *П. палец у пальчатцы.* ‖ *незак.* **прырабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **прыро́бліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыро́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ПРЫРАБО́ТАК**, -тку, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Дадатковы заробак. *Значны п.*

**ПРЫРАЗА́ННЕ** *гл.* прырэзаць[1].

**ПРЫРАЗА́ЦЬ**[1] *гл.* прырэзаць[1].

**ПРЫРАЗА́ЦЬ**[2] *гл.* прырэзаць[2].

**ПРЫРАЗНЫ́**, -а́я, -о́е (спец.). Такі, які прырэзалі[1], прыбавілі. *Прыразныя землі.*

**ПРЫРА́ІЦЬ** *гл.* ра́іць.

**ПРЫРАСЦІ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -це́; -ро́с, -расла́, -ло́; *зак.* **1.** *да чаго.* Зрастаючыся, утварыць адно цэлае з чым-н. *Прышчэп прырос. П. да месца* (перан.: зрабіцца нерухомым). **2.** Павялічыцца ў колькасці, памерах (разм.). ‖ *незак.* **прыраста́ць**, -а́е. ‖ *наз.* **прырашчэ́нне**, -я, *н. і* **прыро́ст**, -у, *М* -сце, *м.* (да 2 знач.). *Прырашчэнне працэнтаў. Прырост пагалоўя жывёлы.*

**ПРЫРАЎНАВА́ЦЬ**[1], -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., каго-што* і *да каго-чаго.* Прыпадобніць да каго-, чаго-н., прызнаць роўным з кім-, чым-н. *Па таленце яго можна п. да лепшых спевакоў.* ‖ *незак.* **прыраўно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫРАЎНАВА́ЦЬ**[2] *гл.* раўнаваць[2].

**ПРЫРО́БКА** *гл.* прырабіць.

**ПРЫРО́БЛІВАЦЬ** *гл.* прырабіць.

**ПРЫРО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** Усё існае ў Сусвеце, арганічны і неарганічны свет. *Законы прыроды. Жывая п.* (арганічны свет). *Мёртвая п.* (неарганічны свет: не расліны, не жывёлы). **2.** Месцы па-за гарадамі (палі, лясы, горы). *Любавацца прыродай. На ўлонні прыроды. Выехаць на прыроду* (разм.). **3.** *перан., чаго.* Асноўная ўласцівасць, сутнасць (кніжн.). *П. атама. П. сацыяльных адносін.* ◊ **Ад прыроды** або **з прыроды** — ад нараджэння, ад пачатку існавання. *З дрэнным зрокам ад прыроды.* **Па прыродзе** — па характары, па натуры. *Па прыродзе ён добры чалавек.* ‖ *прым.* **пры-ро́дны**, -ая, -ае. *Прыродныя багацці краю. Прыродныя рэсурсы. Прыродныя ўмовы.*

**ПРЫРОДА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да прыроды (у 1 знач.), напр.: *прыродаахоўны, прыродазнаўства, прыродакарыстанне.*

**ПРЫРОДААХО́ЎНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае адносіны да аховы прыроды, прыроднага багацця. *Прыродаахоўныя мерапрыемствы.*

**ПРЫРОДАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Комплекс навук аб прыродзе; вучэбны прадмет у школе. *Праграма па прыродазнаўстве.* ‖ *прым.* **прыродазна́ўчы**, -ая, -ае.

**ПРЫРО́ДЖАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Уласцівы ад нараджэння. *П. імунітэт. П. парок сэрца. П. талент.* **2.** Які ў найвышэйшай ступені валодае якімі-н. уласцівасцямі, якасцямі для якой-н. дзейнасці. *П. тэхнік. П. мастак.* ‖ *наз.* **прыро́джанасць**, -і, *ж.*

**ПРЫРО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* прырода. **2.** Натуральны. *П. газ.* **3.** Які па нараджэнні належыць да якой-н. мясцовасці, краіны, да якога-н. грамадскага класа. *П. мінчанін. П. селянін.* **4.** *перан.* Тое, што і *прыроджаны* (у 1 знач.). *П. талент.*

**ПРЫРО́СЛЫ**, -ая, -ае. Які прырос да чаго-н. *П. прышчэп.*

**ПРЫРО́СТ** *гл.* прырасці.

**ПРЫРУЧЫ́ЦЦА**, -учу́ся, -у́чышся, -у́чыцца; *зак.* Стаць ручным, прывыкнуць да чалавека. *Алень хутка прыручыўся.* ‖ *незак.* **прыруча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫРУЧЫ́ЦЬ**, -учу́, -у́чыш, -у́чыць; -у́чаны; *зак., каго (што).* Прыручыць да выканання волі чалавека, зрабіць ручным, паслухмяным. *П. дзікага кабана. П. нелюдзімага юнака* (перан.). ‖ *незак.* **прыруча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прыручэ́нне**, -я, *н.*

**ПРЫРЭ́ЗАЦЬ**[1], -э́жу, -э́жаш, -э́жа; -э́ж; -э́заны; *зак., што* і *чаго.* Прыбавіць зямлі шляхам межавання. *П. зямлі.* ‖ *незак.* **прыраза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **прыраза́нне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **прырэ́з**, -у, *м. і* **прырэ́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.*

**ПРЫРЭ́ЗАЦЬ**[2], -э́жу, -э́жаш, -э́жа; -э́ж; -э́заны; *зак., каго (што)* (разм.). **1.** Умярцвіць, канчаткова дарэзаўшы. *П. падбітага звера.* **2.** Зарэзаць. *Такі бандыт і п. можа.* ‖ *незак.* **прыраза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **прырэ́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫРЭ́ЙКАВЫ**, -ая, -ае (спец.). Які знаходзіцца каля лініі чыгункі. *Прырэйкавая пляцоўка.*

**ПРЫСА́ДЖВАЦЦА** *гл.* прысесці.

**ПРЫСА́ДЗІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Маларослы, але моцнага складу. *Прысадзістая постаць.* **2.** *перан.* Нізкі, але шырокі, тоўсты. *П. дуб.* ‖ *наз.* **прыса́дзістасць**, -і, *ж.*

**ПРЫСА́ДЫ**, -са́д. Дрэвы, пасаджаныя вакол, каля чаго-н. (дарогі, вуліцы, будынка і пад.). *Шлях абрамлялі бярозавыя п.*

**ПРЫ́САК**, -ску, *м.* Гарачы, распалены попел. *Пячы бульбу ў прыску.*

**ПРЫСАРАМАЦІ́ЦЬ** *гл.* сарамаціць.

**ПРЫСАРО́МІЦЬ** *гл.* сароміць.

**ПРЫСВА́ТАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пра жаніха: пасватацца. ‖ *незак.* **прысва́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫСВА́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго* (разм.). Знайшоўшы (жаніха, нявесту), пасватаць. ‖ *незак.* **прысва́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫ́СВІСТ**, -у, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Свіст, які суправаджае спевы. *Салаўіны п.* **2.** Свісцячы прыгук. *Гаварыць з прысвістам.*

**ПРЫСВІ́СТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Спяваць з прысвістам. **2.** Гаварыць з прысвістам.

**ПРЫСВО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак.* **1.** *каго-што.* Завалодаць, самавольна ўзяць у сваю ўласнасць, выдаць за сваё. *П. знойдзенае. П. чужыя ідэі.* **2.** *што* і *каму-чаму.* Даць (якое-н. званне), назваць якім-н. чынам. *П. званне прафесара. П. плошчы імя Тадэвуша Касцюшкі.* ‖ *незак.* **прысво́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прысвае́нне**, -я, *н.*

**ПРЫ́СВЯТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* (разм.). **1.** Невялікае свята. **2.** Перадсвяточны дзень.

**ПРЫСВЯЦІ́ЦЬ**, -вячу́, -ве́ціш, -ве́ціць; -ве́чаны; *зак., што каму-чаму.* **1.** Прызначыць, аддаць. *П. жыццё мастацтву.* **2.** Зрабіць, стварыць што-н. у гонар каго-, чаго-н. *П. кнігу памяці бацькоў.* ‖ *незак.* **прысвяча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прысвячэ́нне**, -я, *н.*

**ПРЫСВЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* прысвяціць. **2.** *мн.* -і, -яў. Надпіс, уступная частка твора, звернутая да асобы, якой твор прысвечаны.

**ПРЫСЕ́СТ**, -у, *М* -сце, *м.* У выразе: **за адзін присест** (разм.) — не ўстаючы з месца, за адзін раз. *З'есці ўсё за адзін п.*

**ПРЫСЕ́СЦІ**, -ся́ду, -ся́дзеш, -ся́дзе; -ся́дзь; *зак.* **1.** Сагнуўшы калені, апусціцца. *П. на кукішкі. Аж прысеў ад нечаканасці.* **2.** Сесці (на нядоўгі час). *П. адпачыць.* ‖ *незак.* **прыса́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 2 знач.) *і* **прысяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 знач.); *наз.* **прысяда́нне**, -я, *н.* (паводле 1 знач.).

**ПРЫСКАКА́ЦЬ**, -скачу́, -ска́чаш, -ска́ча; -скачы́; *зак.* Наблізіцца скачкамі або прыехаць наўскач. *Да шышак прыскакала вавёрка. П. вярхом.*

**ПРЫСКРЫ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Скрыначка ў куфры на бакавой сценцы для захоўвання дробных рэчаў. *Пакласці брошку ў п.* ‖ *прым.* **прыскры́начны**, -ая, -ае.

**ПРЫСЛА́ЦЬ**, прышлю́, прышле́ш, прышле́; прышлём, прышляце́, прышлю́ць; прышлі́; прысла́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Даставіць праз каго-н. або поштай. *П. пасылку. П. падарунак.* **2.** *каго (што).* Накіраваць куды-н. з якой-н. мэтай. *П. пасыльнага.* ‖ *незак.* **прысыла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прысы́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.*

**ПРЫСЛО́ЎЕ**[1], -я, *мн.* -і, -яў, *н.* У граматыцы: нязменная часціна мовы, якая абазначае прымету дзеяння, стану або якасці, напр.: *цёпла, гучна, там, заўсёды.* ‖ *прым.* **прысло́ўны**, -ая, -ае.

**ПРЫСЛО́ЎЕ**[2], -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Прыгаворка, выраз і пад., якія ўстаўляюцца ў мову для большай эфектнасці ці па прывычцы, або тое, што гаворыцца для суправаджэння якіх-н. дзеянняў. *Традыцыйныя прыслоўі заклінання.*

**ПРЫСЛУ́ГА**, -і, *ДМ* -лу́зе, *ж.* **1.** Служанка, хатняя работніца. **2.** *зб.* Слугі. **3.** *зб.* Разлік гарматы, кулямёта, мінамёта. *Кулямётная п.*

**ПРЫСЛУГО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каму* (разм.). Тое, што і *прыслужваць.* ‖ *наз.* **прыслуго́ўванне**, -я, *н.*

**ПРЫСЛУ́ЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каму* (уст.). Выконваць абавязкі прыслугі (у 2 знач.). *П. за сталом.* ‖ *наз.* **прыслу́жванне**, -я, *н.*

**ПРЫСЛУ́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Слуга (у 1 знач.; уст.). *П. пры гасцініцы.* **2.** Той, хто імкнецца выслужыцца перад кім-н., памагаты (пагард.). ‖ *ж.* **прыслу́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПРЫСЛУЖЫ́ЦЦА**, -ужу́ся, -у́жышся, -у́жыцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *падслужыцца.* ‖ *незак.* **прыслу́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **прыслу́жванне**, -я, *н.*

**ПРЫСЛУ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., да каго-чаго.* **1.** Напружыць слых, увагу, каб пачуць што-н. *П. да гаворкі.* **2.** *перан.* Прыняць да ўвагі, да ведама што-н. *П. да парад старэйшых. П. да голасу мас.* **3.** Прывыкшы да якіх-н. гукаў, перастаць заўважаць іх (разм.). *П. да тарахцення колаў.* ‖ *незак.* **прыслухо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫ́СМАК**, -у, *м.* Дадатковы, пабочны смак чаго-н. у якой-н. ежы, а таксама асаблівы, характэрны смак чаго-н. *Гарэлы п. П. сентыментальнасці* (перан.).

**ПРЫСМА́КІ**, -аў, *м.* **1.** Ласункі, а таксама ўвогуле смачныя, асабліва прыгатаваныя стравы. *Ласы на п.* **2.** Прыправа (разм.). *Страва з неабходнымі прысмакамі.*

**ПРЫСМАКТА́ЦЦА**, -макчу́ся, -мо́кчашся, -мо́кчацца; -макчы́ся; *зак.* Упіцца, прыстаць да чаго-н. усмоктваючыся. *П'яўкі прысмакталіся.* ‖ *незак.* **прысмо́ктвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *прым.* **прысмо́ктвальны**, -ая, -ае.

**ПРЫСНІ́ЦЦА** *гл.* сніцца.

**ПРЫСНІ́ЦЬ** *гл.* сніць.

**ПРЫСО́С**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у, *гл.* прыссацца. **2.** -а, *мн.* -ы, -аў. Прыстасаванне, пры дапамозе якога можна што-н. прыссаць, прысмактаць. *Трымацца на прысосах.* ‖ *прым.* **прысо́сны**, -ая, -ае.

**ПРЫСО́САК**, -ска, *мн.* -скі, -скаў, *м.* (спец.). Орган у раслін-паразітаў і некаторых жывёльных арганізмаў для прысмоктвання да іншых відаў і ўсмоктвання пажыўных рэчываў. *П. піяўкі.* ‖ *прым.* **прысо́скавы**, -ая, -ае.

**ПРЫСО́ЎВАННЕ** *гл.* прысунуцца, прысунуць.

**ПРЫСО́ЎВАЦЦА** *гл.* прысунуцца.

**ПРЫСО́ЎВАЦЬ** *гл.* прысунуць.

**ПРЫСО́ХЛЫ**, -ая, -ае. Які прысох, прыстаў. *Прысохлая да ботаў гразь.*

**ПРЫСО́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -со́х, -хла; *зак.* Падсохшы, прыстаць да чаго-н. *Гразь прысохла да колаў.* ‖ *незак.* **прысыха́ць**, -а́е.

**ПРЫСПЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** Надысці, настаць (пра час, справу, патрэбу). *Прыспела чарга.* **2.** *безас.* Абавязкова спатрэбіцца, вельмі захацецца (разм.). *Што табе так прыспела з гэтай паездкай?* **3.** З'явіцца ў патрэбны момант; паспець, не спазніцца (разм.). *П. на паратунак.*

**ПРЫСПЕ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць больш хуткім. *П. хаду.* **2.** *што.* Наблізіць наступленне чаго-н. *П. перамогу над ворагам.* **3.** *каго (што)* і *каго (што) з чым.* Прымусіць рабіць што-н. хутчэй. *П. з заканчэннем работы.* ‖ *незак.* **прыспяша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **прыспе́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫСПІ́ЧЫЦЬ**, -ыць; *безас.; зак., каму з інф.* (разм.). Вельмі захацецца, спатрэбіцца. *Прыспічыла ім ехаць сёння.*

**ПРЫСПУСЦІ́ЦЬ**, -ушчу́, -у́сціш, -у́сціць; -у́шчаны; *зак., што.* Трохі спусціць. *П. сцяг.* ‖ *незак.* **прыспуска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫССА́ЦЦА**, -ссу́ся, -ссе́шся, -ссе́цца; -ссёмся, -ссяце́ся, -ссуцца́; -ссі́ся; *зак.* Моцна прыстаць да чаго-н. ссучы. ‖ *наз.* **прысо́с**, -у, *м.* ‖ *прым.* **прысо́сачны**, -ая, -ае.

**ПРЫСТАВА́ННЕ** *гл.* прыстаць.

**ПРЫСТАВА́ЦЬ** *гл.* прыстаць.

**ПРЫСТА́ВАЧНЫ** *гл.* прыстаўка.

**ПРЫСТА́ВІЦЬ**, -а́ўлю, -а́віш, -а́віць; -а́ўлены; *зак.* **1.** *каго-што.* Паставіць ушчыльную да чаго-н., прыкласці. *П. зэдлік да ложка.* **2.** *каго (што).* Прызначыць для догляду, нагляду пры кім-, чым-н. *П. варту да чаго-н.* ‖ *незак.* **прыстаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **прыстаўле́нне**, -я, *н.*

**ПРЫСТА́НАК**, -нку, *м. і* **ПРЫСТА́НІШЧА**, -а, *н.* Месца, якое можа служыць прытулкам, часовым жыллём. *Знайсці сабе прыстанак (прыстанішча).*

**ПРЫ́СТАНЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Месца на беразе ракі, вадаёма, абсталяванае для прычальвання суднаў. *Паромная п. Ціхая п.* (таксама перан.: пра спакойнае, бестурботнае жыццё). ‖ *прым.* **пры́станскі**, -ая, -ае.

**ПРЫСТАРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., чаго.* Раздабыць, прыгатаваць што-н., звычайна з намаганнямі. *П. дроў.*

**ПРЫСТАСАВА́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* Здольнасць ці магчымасць прыстасавацца да чаго-н. *П. арганізма да асяроддзя.*

**ПРЫСТАСАВА́ЛЬНІЦТВА**, -а, *н.* (пагард.). Паводзіны, учынкі прыстасаванца. ‖ *прым.* **прыстасава́льніцкі**, -ая, -ае. *Прыстасавальніцкая палітыка.*

**ПРЫСТАСАВА́НАСЦЬ**, -і, *ж.* Прыгоднасць, адпаведнасць якім-н. умовам. *П. да жыцця.*

**ПРЫСТАСАВА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (пагард.). Чалавек, які прыстасоўваецца да абставін, утойваючы свае сапраўдныя погляды. ‖ *ж.* **прыстасава́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ПРЫСТАСАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* прыстасавацца, прыстасаваць. **2.** *мн.* -і, -яў. Прадмет, любое ўстройства, пры дапамозе якога выконваецца якое-н. дзеянне, работа; увогуле — прыбор, механізм. *П. для заціску дэталі. Фільтравальнае п.*

**ПРЫСТАСАВА́НСТВА**, -а, *н.* (пагард.). Тое, што і *прыстасавальніцтва.*

**ПРЫСТАСАВА́ЦЦА**, -су́юся, -су́ешся, -су́ецца; -су́йся; *зак.* Асвоіўшыся з чым-н., набыць патрэбныя навыкі, уменне. *П. да абставін. П. да новых умоў жыцця.* ‖ *незак.* **прыстасо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **прыстасава́нне**, -я, *н. і* **прыстасо́ўванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **прыстасава́льны**, -ая, -ае (спец.). *Прыстасавальныя ўласцівасці. Прыстасавальная афарбоўка насякомых.*

**ПРЫСТАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць прыгодным, прымяніць для чаго-н. *П. будынак пад клуб.* **2.** *што* і *да чаго.* Прымеркаваць да чаго-н. у часе. *П. паездку да свята.* ‖ *незак.* **прыстасо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыстасава́нне**, -я, *н. і* **прыстасо́ўванне**, -я, *н.*

**ПРЫ́СТАЎ**, -тава, *мн.* -тавы, -таваў, *м.* **1.** Паліцэйская пасада невялікага адміністрацыйнага раёна. *Участковы п. Станавы п.* **2.** У Расійскай дзяржаве 15—17 стст.: службовая асоба, прыстаўленая да якой-н. справы для нагляду. ○ **Судовы прыстаў** — судовы выканаўца.

**ПРЫСТА́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -та́вак, *ж.* **1.** Тое, што прыстаўлена, далучана да чаго-н. *Тэлевізійная п.* **2.** У граматыцы: частка слова, марфема, якая стаіць перад коранем; прэфікс. ‖ *прым.* **прыста́вачны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Прыставачныя дзеясловы.*

**ПРЫСТАЎЛЕ́ННЕ** *гл.* прыставіць.

**ПРЫСТАЎЛЯ́ЦЬ** *гл.* прыставіць.

**ПРЫСТАЎНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Такі, які прыстаўляецца ці можа прыстаўляцца да чаго-н. *Прыстаўное крэсла* (у тэатры). *Прыстаўная лесвіца.* **2.** У граматыцы: **прыстаўныя гукі** — зычныя і галосныя гукі, што ўзнікаюць у пэўных фанетычных умовах у пачатку слова (напр.: «в» у слове «возера», «о» ў слове «Орша»).

**ПРЫСТА́ЦЬ**, -а́ну, -а́неш, -а́не; -а́нь; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *да каго-чаго.* Прымацавацца, шчыльна прылягаючы, прыліпнуць. *Гразь прыстала да паліто.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., да каго.* Пра заразную хваробу: перадацца (разм.). *Прыстаў грып.* **3.** *да каго.* Далучыцца, прымкнуць. *П. да кампаніі.* **4.** *да каго.* Звярнуцца з надакучлівымі размовамі, прось-

бамі і пад. (разм.). *П. з пытаннямі.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра судны: падышоўшы да берага, прыстані, прычаліць. **6.** Стаміцца, змагчыся. *Конь прыстаў у дарозе.* ◊ **Прыстаць у прымы** — стаць прымаком. ‖ *незак.* **прыстава́ць**, -таю́, -тае́ш, -тае́; -таём, -таяце́, -таю́ць; -тава́й; *наз.* **прыстава́нне**, -я, *н.* (да 4 і 5 знач.).

**ПРЫСТО́ЙНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* прыстойны. **2.** Ветлівасць, далікатнасць. *Прытрымлівацца правіл прыстойнасці.*

**ПРЫСТО́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адпавядае правілам прыстойнасці (у 2 знач.); добра выхаваны, сумленны. *П. малады чалавек.* **2.** Дастаткова добры; адпаведны па велічыні. *П. касцюм. Прыстойная адлегласць.* ‖ *наз.* **прысто́йнасць**, -і, *ж.*

**ПРЫСТРАЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* Пробнай стральбой устанавіць правільны прыцэл. *Артылерысты прыстралязліся.* ‖ *незак.* **прыстрэ́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **прыстрэ́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.*

**ПРЫСТРАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* Пробнымі стрэламі вызначыць правільны прыцэл чаго-н. *П. гармату.* ‖ *незак.* **прыстрэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыстрэ́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.; прым.* **прыстрэ́лачны**, -ая, -ае (спец.) *і* **прыстрэ́льны**, -ая, -ае (спец.). *Прыстрэлачная шрапнель. Прыстрэльны агонь.*

**ПРЫСТРАЧЫ́ЦЬ**, -рачу́, -ро́чыш, -ро́чыць; -ро́чаны; *зак., што.* Прышыць (строчкай). *П. каўнер.* ‖ *незак.* **прыстро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫСТРО́ІЦЦА**[1], -о́юся, -о́ішся, -о́іцца; *зак.* **1.** Далучыцца да строю (у 1 знач.). *П. ў хвост калоны.* **2.** Прымасціцца, размясціцца дзе-н. *П. на канапе.* ‖ *незак.* **прыстро́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫСТРО́ІЦЦА**[2], -о́юся, -о́ішся, -о́іцца; *зак.* (разм.). Апрануцца па-святочнаму, прыбрацца. ‖ *незак.* **прыстро́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫСТРО́ІЦЬ**[1], -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., каго-што.* **1.** Паставіць у строй (у 1 знач.), у дадатак да ўжо пастроеных. *П. другую роту да першай.* **2.** Уладкаваць на работу, інш. месца (разм.). ‖ *незак.* **прыстро́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫСТРО́ІЦЬ**[2], -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., каго-што* (разм.). Апрануць па-святочнаму, прыбраць. ‖ *незак.* **прыстро́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫСТРУ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -ру́нь; -нены; *зак., каго-што* (разм.). Уздзейнічаць на каго-н. строгімі мерамі, зрабіць каму-н. вымову. *П. распусніка.* ‖ *незак.* **прыстру́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫСТРЭ́ЛАЧНЫ** *гл.* прыстраляць.

**ПРЫСТРЭ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго (што).* Забіць або дабіць выстралам. *П. ваўка. П. хворага сабаку.* ‖ *незак.* **прыстрэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫСТРЭ́ЛКА** *гл.* прыстраляцца, прыстраляць.

**ПРЫСТРЭ́ЛЬВАЦЬ** *гл.* прыстраляць.

**ПРЫСТРЭ́ЛЬНЫ** *гл.* прыстраляць.

**ПРЫСТУ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *чым.* Стукнуць злёгку, у такт чаму-н. *П. абцасам.* **2.** *каго (што).* Забіць моцным ударам, выстралам (разм.). *П. здрадніка.* ‖ *незак.* **прысту́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫ́СТУП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* прыступіць. **2.** Атака, штурм. *Ісці на п. Прыступам захапіць горад.* **3.** Вострае праяўленне адзнак хваробы, страху і пад. *П. кашлю. П. рэўнасці. Сардэчны п.* ◊ **Ані прыступу** *да каго* (разм.) — не магчы падысці, звярнуцца да каго-н.

**ПРЫСТУПІ́ЦЦА**, -уплю́ся, -у́пішся, -у́піцца; *зак.* **1.** *да каго-чаго.* Наблізіцца, падысці блізка; звярнуцца да каго-н. *Па балоцістым беразе не п. да ракі. Сёння да яго не п., такі злы.* **2.** *да чаго.* Тое, што і *прыступіць* (у 3 знач.). ‖ *незак.* **прыступа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫСТУПІ́ЦЬ**, -уплю́, -у́піш, -у́піць; *зак., што.* **1.** Прыціснуць, прытрымаць, наступіўшы на што-н. *П. ботам акурак.* **2.** *да каго-чаго.* Падысці, падступіць. *Праціўнік прыступіў да крэпасці.* **3.** *да чаго.* Пачаць, узяцца за што-н. *П. да будаўніцтва. П. да сваіх абавязкаў.* ‖ *незак.* **прыступа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **пры́ступ**, -у, *м.*

**ПРЫСТУ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* **1.** Падножка, па якой падымаюцца ўверх або спускаюцца ўніз. *П. трамвая.* **2.** *перан.* Асобны этап у развіцці чаго-н. (разм.). *Прайсці ўсе прыступкі навучання.*

**ПРЫСУ́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Рашэнне суда, прыгавор. *Вынесці п.* **2.** *перан.* Асуджальная ацэнка чаго-н. *Суровы п. гісторыі.*

**ПРЫСУДЗІ́ЦЬ**, -уджу́, -у́дзіш, -у́дзіць; -у́джаны; *зак.* **1.** *каго (што) і да чаго* або *што* і *каму.* Пра суд: прыгаварыць да чаго-н. *П. штраф каму-н.* або *п. каго-н. да штрафу.* **2.** *каго-што* і *каму.* Пра суд: вынесці рашэнне аб перадачы каго-, чаго-н. каму-н. (разм.). *П. хату бацьку.* **3.** *што* і *каму.* Пастанавіць аб выдачы, прысваенні каму-н. чаго-н. *П. прэмію. П. вучоную ступень.* ‖ *незак.* **прысу́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прысуджэ́нне**, -я, *н.*

**ПРЫСУ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Сунучыся, наблізіцца. *П. да акна.* **2.** Прыйсці павольна, з цяжкасцю (разм., неадабр.). *А гэты чаго прысунуўся сюды?* ‖ *незак.* **прысо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **прысо́ўванне**, -я, *н.*

**ПРЫСУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -сўнь; -нуты; *зак., што.* Сунучы, наблізіць. *П. куфар да сцяны.* ‖ *незак.* **прысо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прысо́ўванне**, -я, *н.*

**ПРЫСУСЕ́ДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак., да каго-чаго* (разм.). Сесці побач, блізка каля каго-, чаго-н., прыладзіцца. *Можна да вас п.?* ‖ *незак.* **прысусе́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫСУ́ТНАСЦЬ**, -і, *ж.* Знаходжанне ў якім-н. месцы ў дадзены час. *У маёй прысутнасці.* ◊ **Прысутнасць духу** — поўнае самавалоданне.

**ПРЫСУ́ТНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Знаходзіцца дзе-н. у дадзены час. *П. на сходзе.*

**ПРЫСУ́ТНЫ**, -ая, -ае. Які прысутнічае дзе-н. у дадзены час. *Прысутныя людзі. Усе прысутныя* (наз.) *галасавалі «за».*

**ПРЫСЦЕ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Бакавая прыбудова. *Размясціцца ў прысценку.* ‖ *прым.* **прысце́начны**, -ая, -ае.

**ПРЫСЫЛА́ЦЬ** *гл.* прыслаць.

**ПРЫСЫ́ЛКА** *гл.* прыслаць.

**ПРЫСЫ́ПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; -сып; -паны; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Насыпаючы, дадаць. *П. зерня.* **2.** *што* і *чым.* Пасыпаць тонкім слоем. *П. папрэлыя месцы стрэптацыдам.* ‖ *незак.* **прысыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прысыпа́нне**, -я, *н. і* **прысы́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.*

**ПРЫСЫ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* **1.** *гл.* прысыпаць. **2.** Парашок, якім прысыпаюць хворае месца (у 2 знач.).

**ПРЫСЫХА́ЦЬ** *гл.* прысохнуць.

**ПРЫСЯ́ГА**, -і, *ДМ* -ся́зе, *ж.* Афіцыйнае і ўрачыстае абяцанне выконваць якія-н. абавязацельствы. *Ваенная п. Прыняць прысягу.*

**ПРЫСЯГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каму-чаму.* Даваць прысягу каму-н. у чым-н. *П. на вернасць каму-, чаму-н.* ‖ *зак.* **прысягну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́.

**ПРЫСЯДА́ННЕ** *гл.* прысесці.

**ПРЫСЯДА́ЦЬ** *гл.* прысесці.

**ПРЫСЯДЗІ́БНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца пры доме, пры сядзібе. *П. ўчастак.*

**ПРЫСЯ́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прыняў прысягу (уст.). **2.** *перан.* Пастаянны, заўсёдны (разм., жарт.). *П. жартаўнік.* ○ **Суд прысяжных** — суд з удзелам выбарных ад насельніцтва асоб, якія выносяць рашэнне аб вінаватасці або невінаватасці падсуднага.

**ПРЫТАІ́ЦЦА**, -таю́ся, -то́ішся, -то́іцца; *зак.* Схавацца, імкнучыся застацца незаўважаным. *П. ў кутку.* ‖ *незак.* **прыто́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫТАМІ́ЦЦА**, -тамлю́ся, -то́мішся, -то́міцца; *зак.* (разм.). Адчуць стому, стаміцца. ‖ *незак.* **прытамля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПРЫТАМІ́ЦЬ**, -тамлю́, -то́міш, -то́міць; -то́млены; *зак., каго-што* (разм.). Тое, што і *стаміць.* *П. коней.* ‖ *незак.* **прытамля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПРЫТАНЦО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Рабіць нагамі рухі, падобныя да танцавальных. *П. ад холаду.*

**ПРЫТАПТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., прыто́пчацца; *зак.* Прымяцца ад хаджэння. *Трава ў садзе прытапталася.* ‖ *незак.* **прыто́птвацца**, -аецца.

**ПРЫТАПТА́ЦЬ**, -тапчу́, -то́пчаш, -то́пча; -тапчы́; -тапта́ны; *зак., што.* Прымяць нагамі. *П. траву.* ‖ *незак.* **прыто́птваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫТАРГАВА́ЦЬ** *гл.* таргаваць.

**ПРЫТАРМАЗІ́ЦЬ**, -мажу́, -мо́зіш, -мо́зіць; -мо́жаны; *зак., што* і *без дап.* Трохі затармазіць. *П. на скрыжаванні дарог.* ‖ *незак.* **прытармо́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫТАРО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што* (спец.). Прывязаць рамянямі, тарокамі (да сядла). ‖ *незак.* **прытаро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫТАЎЧЫ́**, -таўку́, -таўчэ́ш, -таўчэ́; -таўчо́м, -таўчаце́, -таўку́ць; -то́ўк, -таўкла́, -ло́; -таўчы́; -то́ўчаны; *зак.* **1.** *што* і *чым.* Прыправіць затаўкай. *П. боршч салам.* **2.** *каго.* Збіць, пабіць; дабіць (разм.). *Прытаўклі небараку да паўсмерці.* ‖ *незак.* **прыто́ўкваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫТВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -во́рышся, -во́рыцца; *зак.* Прыняць на сябе які-н. выгляд з мэтай увесці ў зман. *П. глухім.* ‖ *незак.* **прытвара́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫТВО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Уваходнае памяшканне з заходняга боку царквы. *У прытворы храма.*

**ПРЫТВО́РНЫ**, -ая, -ае. Які падманна выдаецца за сапраўднае, шчырае. *П. смех. Прытворная сур'ёзнасць. Прытворна* (прысл.) *згадзіцца.* ‖ *наз.* **прытво́рнасць**, -і, *ж.*

**ПРЫТВО́РСТВА**, -а, *н.* Паводзіны таго, хто прытвараецца.

**ПРЫТВО́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які прытвараецца. ‖ *ж.* **прытво́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **прытво́ршчыцкі**, -ая, -ае.

**ПРЫТКНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** *да каго-чаго.* Злёгку дакрануцца да каго-, чаго-н. *П. да пляча.* **2.** Прымасціцца, прысесці дзе-н. (разм.). *П. на краі лавы.* **3.** *перан.* Уладкавацца, трапіць на службу, на працу і пад. (разм.). *П. ў канцылярыю.* ‖ *незак.* **прытыка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫТКНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* **1.** *што.* Злёгку дакрануцца чым-н. да каго-, чаго-н., прыкласці на момант. **2.** *што.* Змясціць, пакласці. *П. яшчэ адзін ложак у пакоі.* **3.** *перан., каго (што).* Прыладзіць на якую-н. пасаду, месца, працу (разм.). *П. у горад.* ‖ *незак.* **прытыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫТО́ЙВАЦЦА** *гл.* прытаіцца.

**ПРЫТО́К**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у, *каго-чаго.* Прылііў, паступленне чаго-н. куды-н. у вялікай колькасці. *П. свежага паветра. П. крыві. П. сродкаў.* **2.** -а, *мн.* -і, -аў. Рака, якая ўпадае ў другую раку. *Прытокі Дняпра.* ‖ *прым.* **прыто́чны**, -ая, -ае *і* **прыто́кавы**, -ая, -ае.

**ПРЫТО́МНАСЦЬ**, -і, *ж.* Стан, у якім чалавек здольны ўсведамляць, успрымаць навакольны свет. *Страціць п. Прыйсці да прытомнасці.*

**ПРЫТО́МНЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *незак.* Прыходзіць да прытомнасці. *Чалавек то прытомнеў, то зноў губляў прытомнасць.*

**ПРЫТО́МНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ў прытомнасці, пры памяці.

**ПРЫТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Месца, дзе тайна збіраюцца са злачыннымі або непрыстойнымі мэтамі. *Зладзейскі п. П. разбэшчанасці.*

**ПРЫТО́ПТВАЦЦА** *гл.* прытаптацца.

**ПРЫТО́ПТВАЦЬ** *гл.* прытаптаць.

**ПРЫТО́РКНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак., да каго-чаго* (разм.). Дакрануцца злёгку. *П. да праса. П. да работы* (перан.). ‖ *незак.* **прыто́рквацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫТО́ЎКВАЦЬ** *гл.* прытаўчы.

**ПРЫТРЫ́ЗНІЦЦА** *гл.* трызніцца.

**ПРЫТРЫМА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -ы́маны; *зак.* **1.** *каго-што.* Злёгку ўтрымаць, не даючы рухацца або ўпасці. *П. каня. П. збан.* **2.** *што.* Тое, што і *затрымаць* (у 2 знач.). *Дажджы прытрымалі ўборку збожжавых.* **3.** *перан., каго-што.* Патрымаць да некаторага часу, прыберагчы; не пусціць у продаж. *П. сена к вясне. П. тавар.* ‖ *незак.* **прытры́мліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫТРЫ́МЛІВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** *за што.* Злёгку трымацца. *П. за парэнчы.* **2.** *чаго.* Трымацца бліжэй да чаго-н. *П. правага боку дарогі.* **3.** *перан., чаго.* Стаяць за што-н., дзейнічаць згодна з чым-н., мець схільнасць да чаго-н. *П. цвёрдых перакананняў. П. традыцый.*

**ПРЫТУ́ЛАК**, -лку, *м.* **1.** Месца, дзе можна ўратавацца ад каго-, чаго-н., адпачыць, прабыць патрэбны час. *Шукаць прытулку. Права прытулку* (права асобы, якая праследуецца дзяржавай, на абарону з боку іншай дзяржавы; спец.). **2.** Дабрачынная ўстанова для выхавання сірот і беспрытульных дзяцей. *Дзіцячы п.* ‖ *прым.* **прыту́лкавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПРЫТУЛІ́ЦЦА**, -улю́ся, -у́лішся, -у́ліцца; *зак.* **1.** *да каго-чаго.* Шчыльна прыціснуцца, прыхіліцца. *П. да маці. П. да сцяны.* **2.** Знайсці прытулак (у 1 знач.). *П. ў родных. Каля лесу прытулілася хатка* (перан.). ‖ *незак.* **прыту́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **прытуля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПРЫТУЛІ́ЦЬ**, -улю́, -у́ліш, -у́ліць; -у́лены; *зак.* **1.** *каго-што.* Шчыльна або з пяшчотай прыціснуць, прыхіліць да сябе. *П. трубку да вуха. П. дзіця да грудзей.* **2.** *каго (што).* Даць прытулак (у 1 знач.), узяць пад сваю апеку. *П. сірот.* ‖ *незак.* **прыту́львацъ**, -аю, -аеш, -ае *і* **прытуля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПРЫТУ́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тупаць нагамі ў такт чаму-н. *П. нагой у такт песні.*

**ПРЫТУПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -у́піцца; *зак.* **1.** Крыху затупіцца. *Канькі прытупіліся.* **2.** *перан.* Страціць адчувальнасць, стаць менш успрымальным. *Боль прытупіўся. Увага прытупілася.* ‖ *незак.* **прытупля́цца**, -я́ецца.

**ПРЫТУПІ́ЦЬ**, -уплю́, -у́піш, -у́піць; -у́плены; *зак., што.* **1.** Трохі затупіць. *П. нож.* **2.** *перан.* Аслабіць, зрабіць менш успрымальным. *П. памяць. П. пільнасць.* ‖ *незак.* **прытупля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **прытупле́нне**, -я, *н.*

**ПРЫТУ́ПНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *аднакр.* Тупнуць, стукнуць нагой аб падлогу або зямлю. *П. ботамі.*

**ПРЫТУШЫ́ЦЬ**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны; *зак., што* (разм.). Аслабіць, убавіць; затушыць (святло, агонь). *П. лямпу. П. цыгарэту.*

**ПРЫ́ТЧА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (кніжн.). Іншасказальнае апавяданне з павучальным вывадам. *П. пра блуднага сына.* ‖ *прым.* **пры́тчавы**, -ая, -ае.

**ПРЫТЫКА́ЦЦА** *гл.* прыткнуцца.

**ПРЫТЫКА́ЦЬ** *гл.* прыткнуць.

**ПРЫТЫ́М**, *злуч.* Да таго ж, акрамя таго (ужыв. звычайна ў спалучэнні са злучнікамі «і», «ды», «а»). *Ён малавопытны і п. мяккахарактарны.*

**ПРЫЎДА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *зак.* (разм.). **1.** Пачаць рабіць што-н. хутчэй, паднацісінуць. *Трэба п., бо не выканаем нормы.* **2.** *за кім.* Пачаць заляцацца. *П. за суседкай.* ‖ *незак.* **прыўдара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫЎЗНЯ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Бадзёры, ажыўлены. *П. настрой.* **2.** Высокі, урачысты. *П. тон.* ‖ *наз.* **прыўзня́тасць**, -і, *ж.*

**ПРЫЎЗНЯ́ЦЬ**, -німу́, -ні́меш, -ні́ме; -ні́мі; -ня́ты; *зак., каго-што.* Трохі ўзняць, падняць. *П. галаву.* ‖ *незак.* **прыўзніма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **прыўзня́цца**, -німу́ся, -ні́мешся, -ні́мецца; -ні́міся; *незак.* **прыўзніма́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **прыўздыма́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫЎНЕ́СЦІ**, -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; -нясём, -несяце́, -нясу́ць; -нёс, -не́сла; -нясі́; -не́сены; *зак., што* і *ў што.* Уключыць, унесці што-н. дадатковае, пабочнае. *Рэчаіснасць прыўнесла ў жыццё многа змен.* ‖ *незак.* **прыўно́сіць**, -о́шу, -о́сіш, -о́сіць. ‖ *наз.* **прыўнясе́нне**, -я, *н.*

**ПРЫЎСТА́ЦЬ**, -а́ну, -а́неш, -а́не; -а́нь; *зак.* Прыпадняцца, устаць не на ўвесь рост. *П. з месца.* ‖ *незак.* **прыўстава́ць**, -таю́, -тае́ш, -тае́; -таём, -таяце́, -таю́ць; -тава́й.

**ПРЫФАСТРЫГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны; *зак., што.* Прышыць буйнымі шыўкамі. *П. каўнер.* ‖ *незак.* **прыфастрыго́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыфастрыго́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* *і* **прыфастрыго́ўванне**, -я, *н.*

**ПРЫФРАНТАВЫ́**, -а́я, -о́е. Які знаходзіцца паблізу фронту, каля фронту. *Прыфрантавая зона.*

**ПРЫФРАНЦІ́ЦЦА**, -нчу́ся, -нці́шся, -нці́цца; -нці́мся; -нціце́ся; -нця́цца; *зак.* (разм.). Франтавата апрануцца, прыбрацца.

**ПРЫХАВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). Схаваць на які-н. выпадак. *П. капейку на чорны дзень.* ‖ *незак.* **прыхо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫХАДЖА́НІН**, -а, *мн.* -джа́не *і (з ліч. 2, 3, 4)* -джа́ніны, -джа́н, *м.* Вернік, які на-

лежыць да якога-н. прыхода[2]. ‖ *ж.* **прыхаджа́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ПРЫХАДНЫ́**, -а́я, -о́е. Які з'яўляецца куды-н. на час для выканання абавязкаў, для лячэння, але не жыве, не знаходзіцца там пастаянна. *Прыхадная нянька. Прыхадныя хворыя.*

**ПРЫХАПІ́ЦЬ**, -хаплю́, -хо́піш, -хо́піць; -хо́плены; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Узяць з сабою. *П. памочніка.* **2.** *што* і *чаго.* Дастаць, пазычыць. *П. грошай у каго-н.* **3.** *каго-што.* Застаць, заспець. *Нас у дарозе прыхапіла мяцеліца.* **4.** *што.* Прымацаваць, замацаваць чым-н. *П. валасы грэбенем.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Пашкодзіць (марозам). *Мароз прыхапіў кветкі* або *марозам прыхапіла кветкі.* ‖ *незак.* **прыхо́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫХАРАШЫ́ЦЦА**, -рашу́ся, -ро́шышся, -ро́шыцца; *зак.* (разм.). Апрануцца прыгожа, надаць сабе прыгажэйшы выгляд. ‖ *незак.* **прыхаро́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **прыхаро́шванне**, -я, *н.*

**ПРЫХАРАШЫ́ЦЬ**, -рашу́, -ро́шыш, -ро́шыць; -ро́шаны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Зрабіць больш прыгожым, надаць прыгажэйшы выгляд. *П. горад к святу.* **2.** *перан.* Падаць у больш прыгожым выглядзе, чым у сапраўднасці. *П. героя. П. праўду.* ‖ *незак.* **прыхаро́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыхаро́шванне**, -я, *н.*

**ПРЫХВАРНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **ПРЫХВАРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* (разм.). Захварэць няцяжка, ненадоўга.

**ПРЫ́ХВАСЦЕНЬ**, -сня, *мн.* -сні, -сняў, *м.* (разм., пагард.). Тое, што і *падхалім. Панскі п.*

**ПРЫ́ХВАТКАМІ**, *прысл.* У перапынках паміж іншымі справамі і заняткамі; урыўкамі. *Світар вязала п.*

**ПРЫХВО́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Хварэць часта, але не моцна. *У апошні час стары прыхворвае.*

**ПРЫХІЛІ́ЦЦА**, -хілю́ся, -хі́лішся, -хі́ліцца; *зак.* **1.** Нахіліцца, нагнуцца трохі ўніз. *Галіны прыхіліліся да зямлі.* **2.** *да каго-чаго.* Шчыльна наблізіцца да чаго-н., прыпасці да каго-н. *Дзіця прыхілілася да бацькі.* **3.** *перан., да каго.* Знайсці спагаду ў каго-н., адчуць прыхільнасць да каго-н. *Няма ёй да каго п.* ‖ *незак.* **прыхіля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца *і* **прыхі́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫХІЛІ́ЦЬ**, -хілю́, -хі́ліш, -хі́ліць; -хі́лены; *зак.* **1.** *каго-што.* Схіліць, нагнуць трохі ўніз. *П. галіну.* **2.** *каго-што.* Шчыльна наблізіць да чаго-н., прытуліць, прыціснуць да каго-, чаго-н. *П. дошку да сцяны. Маці прыхіліла дзіця да грудзей.* **3.** *перан., каго (што).* Даць прытулак (у 1 знач.) каму-н.; выклікаць у кім-н. прыхільныя адносіны да каго-, чаго-н. *П. сірату.* ‖ *незак.* **прыхіля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **прыхі́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫХІ́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* прыхільны. **2.** Добразычлівыя, спагадлівыя адносіны да каго-, чаго-н., сімпатыя. *П. да сяброўкі.* **3.** Схільнасць да якога-н. занятку. *Вялікая п. да музыкі.*

**ПРЫХІ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м., каго-чаго* і *чый.* **1.** Паслядоўнік якіх-н. поглядаў, якога-н. вучэння. *У гэтага вучонага многа прыхільнікаў. Кангрэс прыхільнікаў міру.* **2.** Той, хто выказвае сімпатыі, прыхільнасць да каго-н.; паклоннік. *П. чый-го-н. таленту. П. душы і сэрца.* ‖ *ж.* **прыхі́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ПРЫХІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае схільнасць да чаго-н. *П. да працы.* **2.** Які выказвае сімпатыі да каго-, чаго-н., спачувае каму-н.; які выяўляе адабрэнне, спагаду. *П. слухач. П. позірк.* **3.** Які выказвае адабрэнне, станоўчы. *П. водзыў.* ‖ *наз.* **прыхі́льнасць**, -і, *ж.*

**ПРЫХІНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* Тое, што і *прыхіліцца* (у 2 і 3 знач.). ‖ *незак.* **прыхіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫХІНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* **1.** Тое, што і *прыхіліць.* **2.** *каго-што.* Прыкрыць, засланіць чым-н. (разм.). *П. ложак коўдрай.* ‖ *незак.* **прыхіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫХЛУСІ́ЦЬ**, -ушу́, -у́сіш, -у́сіць; -у́шаны; *зак., што* і *без дап.* (разм.). Крыху схлусіць, расказваючы пра што-н., прылгаць. ‖ *незак.* **прыхлу́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫХЛЫ́НУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; *зак.* Хлынуць, прыблізіцца куды-н. *Хвалі прыхлынулі. Натоўп прыхлынуў. Прыхлынулі думкі пра мінулае* (перан.).

**ПРЫХО́Д**[1], -у, *М* -дзе, *м.* **1.** *гл.* прыйсці. **2.** Прыбыццё (поезда, парахода). *П. поезда.* **3.** Паступленне сум, тавараў, а таксама графа ў бухгалтарскіх кнігах для запісу паступленняў; *проціл.* расход. *П. перавышае расход.* ‖ *прым.* **прыхо́дны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Прыходная квітанцыя. Прыходная каса.*

**ПРЫХО́Д**[2], -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Абшчына вернікаў, якая належыць да адной царквы (у 2 знач.). *Ён не тутэйшага прыхода.* ‖ *прым.* **прыхо́дскі**, -ая, -ае. *Прыходская школа.*

**ПРЫХО́ДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; *незак., што.* Запісваць у прыход[1] (у 3 знач.). ‖ *зак.* **запрыхо́даваць**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны *і* **апрыхо́даваць**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны.

**ПРЫХО́ДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *незак.* **1.** *гл.* прыйсціся. **2.** *каму.* Быць з кім-н. у якой-н. роднасці. *Ён мне прыходзіцца дзядзькам.*

**ПРЫХО́ДЗІЦЬ** *гл.* прыйсці.

**ПРЫХО́ЖАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Тое, што і *пярэдняя. Распрануцца ў прыхожай.*

**ПРЫХО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* прыхапіць.

**ПРЫХО́ЎВАЦЬ** *гл.* прыхаваць.

**ПРЫЦАНІ́ЦЦА**, -цаню́ся, -цэ́нішся, -цэ́ніцца; *зак., да чаго* і *без дап.* (разм.). Збіраючыся купіць, спытаць пра цану. ‖ *незак.* **прыцэ́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**ПРЫ́ЦЕМАК**, -мку, *м.* Паўзмрок, паўцемра пасля заходу сонца ці перад яго ўсходам або ў дрэнна асветленым памяшканні, месцы. *Набліжаўся п. У гэтым пакоі заўсёды п.*

**ПРЫ́ЦЕМКАМ**, *прысл.* У час прыцемку, на змярканні або на світанні. *Выехаць у дарогу яшчэ п.*

**ПРЫ́ЦЕМНА**, *прысл.* **1.** На світанні або на змярканні, прыцемкам. *Прыехалі на месца ўжо п.* **2.** *безас., у знач. вык.* Цемнавата. *Ужо было п., калі вярнуліся дамоў.*

**ПРЫЦЕ́РЦІ**, прытру́, прытрэ́ш, прытрэ́; прытро́м, прытраце́, прытру́ць; прыцёр, -це́рла; прытры́, -цёрты; *зак., што.* Трэннем, шліфоўкай шчыльна прыгладзіць, далучыць да чаго-н. *П. шкляны корак да бутэлькі.* ‖ *незак.* **прыціра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прыціра́нне**, -я, *н. і* **пры́цірка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* ‖ *прым.* **прыці́рачны**, -ая, -ае. *П. станок.*

**ПРЫЦЕ́РЦІСЯ**, прытру́ся, прытрэ́шся, прытрэ́цца; прытро́мся, прытрацё́ся, прытру́цца; прыцёрся, -це́рлася; прытры́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Шчыльна далучыцца ў выніку прыгонкі, шліфоўкі, трэння. **2.** *перан., да каго-чаго.* Прыстасавацца, прыладзіцца (разм.). *П. адзін да аднаго.* ‖ *незак.* **прыціра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **прыціра́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **пры́цірка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.*

**ПРЫ́ЦІСК**, -у, *м.* **1.** Выдзяленне слова (слоў) сілай голасу. *Сказаць з прыціскам.* **2.** Патоўшчаная лінія пры пісьме пяром. *Пісаць з прыціскам.*

**ПРЫЦІ́СК** *гл.* прыціснуць.

**ПРЫЦІ́СНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак., да каго-чаго.* Шчыльна наблізіцца, прытуліцца. *П. да сцяны.* ‖ *незак.* **прыціска́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., каго-што.* **1.** Націснуўшы, наблізіць да чаго-н.; прычыніць боль, націснуўшы чым-н., заціснуўшы дзе-н. *П. дзіця да грудзей. П. палец дзвярамі.* **2.** *перан.* Стварыць суровыя, неспрыяльныя ўмовы, абмежаваць у чым-н., пазбавіць магчымасці адмаўляць што-н., адпірацца ад чаго-н. (разм.). *П. гультаёў. П. каго-н., каб той усё расказаў.* ‖ *незак.* **прыціска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прыціска́нне**, -я, *н. і* **прыці́ск**, -у, *м. Прыцісканне дзіцяці да грудзей. Прыціск пячаткі да дакумента. Прыціск абібокаў.*

**ПРЫЦІ́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які перастаў падаваць гукі, ствараць шум; сцішаны; прыглушаны. *Прыціхлая вячэрняя вёска. Прыціхлая гаворка.* **2.** Які перастаў рухацца, заціх, паслабеў у сіле свайго праяўлення. *Прыціхлыя дзеці.*

**ПРЫЦІ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; прыці́х, -хла; -ні; *зак.* **1.** Перастаць падаваць гукі, ствараць шум; стаць амаль нячутным. *Гукі прыціхлі. Гутарка прыціхла.* **2.** Перастаць рухацца; паслабець у сіле свай-

го праяўлення. *Дзеці прыціхлі. Вецер прыціх.* ‖ *незак.* **прыціха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫЦІ́ШЫЦЬ**, -і́шу, -і́шыш, -і́шыць; -і́шаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць менш чутным; прыпыніць работу (матора), прыглушыць. *П. радыёпрыёмнік. П. матор.* **2.** *што.* Запаволіць (рух, ходу і пад.). *Аўтамабіль прыцішыў ход. П. хаду.* **3.** *перан., што.* Паслабіць, суцішыць (якое-н. пачуццё, адчуванне; разм.). *П. боль.* **4.** *каго-што.* Заспакоіць, суняць (разм.). *П. дзяцей.* ‖ *незак.* **прыці́шваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **прыціша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫЦІШЭ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які прыцішэў, прыціхлы. *Прыцішэлыя вуліцы.*

**ПРЫЦІШЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* (разм.). Тое, што і *прыціхнуць* (у 1 знач.). *Гоман прыцішэў.*

**ПРЫЦМО́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* Утварыць гук губамі, стуліўшы і хутка растуліўшы іх. *П. ад здзіўлення.* ‖ *незак.* **прыцмо́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫЦЭ́Л**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а, *мн.* -ы, -аў. Прыстасаванне на агнястрэльнай зброі для навядзення на цэль. **2.** -у. Навядзенне на цэль, прыцэльванне. *Лінія прыцэлу.* ◊ **Узяць (браць) на прыцэл** *каго-, што-н.* — прыцэліцца ў каго-, што-н. (таксама перан.: звярнуць асаблівую ўвагу на каго-, што-н.). ‖ *прым.* **прыцэ́льны**, -ая, -ае. *Прыцэльная стральба* (па цэлі).

**ПРЫЦЭ́ЛЬВАЦЦА** *гл.* прыцаніцца.

**ПРЫЦЯГА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які вабіць да сябе, выклікае інтарэс. *Прыцягальная сіла музыкі.* ‖ *наз.* **прыцяга́льнасць**, -і, *ж.*

**ПРЫЦЯГНУ́ЦЦА**, -ягну́ся, -я́гнешся, -я́гнецца; -ягні́ся; *зак.* (разм.). Прыйсці куды-н. з цяжкасцю, павольна. *Прыцягнуўся дадому.*

**ПРЫЦЯГНУ́ЦЬ**, -ягну́, -я́гнеш, -я́гне; -ягні́; -я́гнуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Цягай наблізіць, цягнучы, прысунуць, даставіць куды-н. *П. бервяно. П. лодку да берага.* **2.** *каго (што).* Прывесці сілай ці супраць волі (разм.). *П. у госці.* **3.** *каго-што.* Прымусіць звярнуць увагу на што-н. або выклікаць жаданне прыбыць куды-н. *Выстаўка прыцягнула шмат наведвальнікаў.* **4.** *каго (што).* Прымусіць, выклікаць жаданне прыняць удзел у чым-н. *П. да работы ў камісіі.* **5.** *каго (што) да чаго.* Прымусіць адказаць за сваю дзейнасць, учынкі (афіц.). *П. да адказнасці.* ‖ *незак.* **прыця́гваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыця́гванне**, -я, *н.* (да 1—3 і 5 знач.) *і* **прыцягне́нне**, -я, *н.* (да 4 і 5 знач.).

**ПРЫЦЯЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* Фізічная з'ява, якая заключаецца ў тым, што адно цела імкнецца наблізіцца да другога. *Закон зямнога прыцяжэння.*

**ПРЫЦЯРПЕ́ЦЦА**, -цярплюся, -це́рпішся, -це́рпіцца; -цярпі́ся; *зак., да каго-чаго* і *без дап.* Прывыкнуць да чаго-н. непрыемнага. *П. да болю.*

**ПРЫЦЯЧЫ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цячэ́, -цяку́ць; -цёк, -цякла́, -ло́; *зак.* Пра цякучую вадкасць: з'явіцца дзе-н. *Вада прыцякла ў лагчыну.* ‖ *незак.* **прыцяка́ць**, -а́е.

**ПРЫЧА́Л**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у, *гл.* прычаліць. **2.** -а, *мн.* -ы, -аў. Вяроўка, канат, якім прычальваюць. *Замацаваць, кінуць, падаць п.* **3.** -а, *мн.* -ы, -аў. Месца, дзе прычальваюць. *Карабель стаіць каля прычала.* ‖ *прым.* **прыча́льны**, -ая, -ае.

**ПРЫЧА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* **1.** *што.* Падвёўшы да берага (зямлі), прывязаць (судна, дырыжабль). **2.** Пра судна, дырыжабль: падысці, прыстаць. ‖ *незак.* **прыча́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прыча́л**, -у, *м. і* **прыча́льванне**, -я, *н.*

**ПРЫЧАПІ́ЦЦА**, -чаплюся, -чэ́пішся, -чэ́піцца; *зак.* **1.** Моцна зачапіўшыся, павіснуць. *Да вопраткі прычапіліся ваўчкі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Тое, што і *прыстаць* (у 2 знач.; разм.). *Прычапілася хвароба.* **3.** *перан.* Тое, што і *прыдрацца* (разм., неадабр.). *П. да дробязі.* ‖ *незак.* **прычэ́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **прычапля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПРЫЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак., што.* **1.** Зачапіўшы за што-н., прывесіць або прышпіліць (разм.) да чаго-н. *П. значок.* **2.** Счапіўшы, далучыць, прымацаваць. *П. касілку да трактара.* ‖ *незак.* **прычэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **прычапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **прычэ́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (да 2 знач.) *і* **прычэ́пліванне**, -я, *н.*

**ПРЫЧАПНЫ́**, -а́я, -о́е. Такі, які рухаецца як прычэп. *П. вагон* (у трамвая). *П. агрэгат.*

**ПРЫЧАПУРЫ́ЦЦА** *гл.* чапурыцца.

**ПРЫЧАПУРЫ́ЦЬ** *гл.* чапурыць.

**ПРЫЧАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго (што).* Прывабіць сваёй прыгажосцю або іншымі якасцямі. ‖ *незак.* **прычаро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫЧАСА́ЦЦА**, -чашу́ся, -чэ́шашся, -чэ́шацца; -чэ́шамся, -чэ́шацеся, -чэ́шуцца; -чашы́ся; *зак., звар.; незак.* **прычэ́свацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **прычэ́сванне**, -я, *н.*

**ПРЫЧАСА́ЦЬ**, -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чэ́шам, -чэ́шаце, -чэ́шуць; -чашы́; -часа́ны *і* -чэ́саны; *зак., каго-што.* Прыгладзіць грэбенем (валасы), зрабіць прычоску каму-н. *П. валасы. П. дзіця.* ‖ *незак.* **прычэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прычэ́сванне**, -я, *н.*

**ПРЫЧА́СЦЕ**, -я, *н.* і **ПРЫЧА́СЦЬ**, -і, *ж.* **1.** У вернікаў: віно з кавалачкамі просвіры ў чашы, якое ўжываецца ў царкве для прычашчэння. **2.** Тое, што і *прычашчэнне.*

**ПРЫЧАСЦІ́ЦЦА**, -чашчу́ся, -часці́шся, -часці́цца; -часці́мся, -часціце́ся, -часця́цца; *зак.* У вернікаў: прыняць прычасце (у 1 знач.). ‖ *незак.* **прычашча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПРЫЧАСЦІ́ЦЬ**, -чашчу́, -часці́ш, -часці́ць; -часці́м, -часціце́, -часця́ць; -чашчо́ны; *зак., каго (што).* У вернікаў: справіць над кім-н. абрад прычашчэння. ‖ *незак.* **прычашча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**ПРЫЧАШЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Хрысціянскі абрад прыняцця просвіры і віна — таінства, у час якога на вернікаў нібыта сыходзіць боская ласка.

**ПРЫЧО́СКА**, -і, *ДМ* -чо́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Форма, якая надаецца валасам стрыжкай, расчэсваннем, завіўкай. *Модная п.*

**ПРЫЧТ**, -у, *М* -чце, *м.* Царкоўныя служыцелі і пеўчыя ў хрысціянскай царкве (першапачаткова — без святара). *З'явіўся з усім прычтам.* ‖ *прым.* **пры́чтавы**, -ая, -ае.

**ПРЫЧЫ́М**, *злуч. далучальны.* Да таго ж, у дадатак да гэтага. *Пры школе добры сад, п. большасць дрэў пасаджана самімі вучнямі.*

**ПРЫЧЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -чы́н, *ж.* **1.** З'ява, якая выклікае, абумоўлівае ўзнікненне другой з'явы. *П. хваробы. П. звальнення з работы.* **2.** Падстава, зачэпка для якіх-н. дзеянняў. *Уважлівая п. Смяяцца без прычыны. Па той простай прычыне, што...* (таму, што...). ◊ **Без дай прычыны** — беспадстаўна, ні з таго ні з сяго. **З прычыны** *чаго, у знач. прыназ.* — у выніку чаго-н. *Не прыехаў з прычыны хваробы.*

**ПРЫЧЫНДА́ЛЫ**, -аў (разм., жарт.). Прадметы, рэчы аднаго якога-н. прызначэння. *Сабраць свае прычындалы.*

**ПРЫЧЫНІ́ЦЦА**[1], -ынюся, -ы́нішся, -ы́ніцца; *зак.* **1.** *да чаго.* Стаць прычынай чаго-н. *Самаахвярная праца людзей прычынілася да росквіту гаспадаркі.* **2.** *да чаго.* Стаць саўдзельнікам якой-н. справы; далучыцца да чаго-н. *П. да развіцця музычнага мастацтва. П. да размовы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Здарыцца, адбыцца. *Прычынілася бяда.* ‖ *незак.* **прычыня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**ПРЫЧЫНІ́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́ніцца; *зак.* Зачыніцца няпоўнасцю, няшчыльна. *Дзверы прычыніліся.* ‖ *незак.* **прычыня́цца**, -я́ецца.

**ПРЫЧЫНІ́ЦЬ**[1], -ыню́, -ы́ніш, -ы́ніць; -ы́нены; *зак., што.* Паслужыць прычынай чаго-н. (непрыемнага). *П. боль, крыўду. П. страты.* ‖ *незак.* **прычыня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **прычыне́нне**, -я, *ж.*

**ПРЫЧЫНІ́ЦЬ**[2], -ыню́, -ы́ніш, -ы́ніць; -ы́нены; *зак., што.* Зачыніць няпоўнасцю, няшчыльна. *П. дзверы.* ‖ *незак.* **прычыня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПРЫЧЫ́ННАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Датычнасць, дачыненне да чаго-н. *Мець п. да справы.* **2.** У філасофіі: узаемная сувязь з'яў, ва ўзнікненні і развіцці якіх адна служыць прычынай чаго-н., а другая — вынікам, адна параджаецца другой.

**ПРЫЧЫ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае ці меў дачыненне да чаго-н. *Да ўсіх будынкаў у калгасе і мае рукі прычынныя.* **2.** Які выражае прычыннасць (у 2 знач.). *Прычынная сувязь з'яў.* **3.** У граматыцы: які паказвае на прычыну, мае значэнне прычыны. *П. злучнік.*

**ПРЫЧЭ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Павозка (або вагон, прыстасаванне), якая прычэпліваецца да самаходнага транспартнага сродку. *Трактар з прычэпам.*

**ПРЫЧЭ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* **1.** *гл.* прычапіць. **2.** *перан.* Зачэпка, прычына (разм.). *Знайсці прычэпку зайсці да яго.* **3.** *перан.* Тое, што і *прыдзірка* (разм.). *І за шчэпку знойдзеш прычэпку* (прыказка).

**ПРЫЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *гл.* прычапіцца.

**ПРЫЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *гл.* прычапіць.

**ПРЫЧЭ́ПШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік, які абслугоўвае прычэп. ‖ *ж.* **прычэ́пшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПРЫЧЭ́СВАННЕ** *гл.* прычасацца, прычасаць.

**ПРЫЧЭ́СВАЦЦА** *гл.* прычасацца.

**ПРЫЧЭ́СВАЦЬ** *гл.* прычасаць.

**ПРЫШВАРТАВА́ЦЦА** *гл.* швартавацца.

**ПРЫШВАРТАВА́ЦЬ** *гл.* швартаваць.

**ПРЫ́ШВЫ**, -аў, *адз.* пры́шва, -ы, *ж.* Пярэдняя частка ботаў, якая пакрывае пальцы і верхнюю частку ступні; галоўкі. *Халявы ёсць, а п. зробім.*

**ПРЫ́ШЛАСЦЬ**, -і, *ж.* Час, які прыйдзе за цяперашнім, будучыня. *Вера ў светлую п.*

**ПРЫ́ШЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прыйшоў адкуль-н., не тутэйшы. *П. чалавек.* **2.** Які прыйдзе, наступіць, будучы. *Спадзявацца на прышлае* (наз.).

**ПРЫШПІЛІ́ЦЬ**, -ілю́, -і́ліш, -і́ліць; -і́лены; *зак.* **1.** *што.* Прымацаваць шпількай; прыкалоць. *П. каўнерык.* **2.** *перан., каго-што.* Дадаць, далучыць (разм.). ‖ *незак.* **прышпі́льваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **прышпіля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПРЫШПІЛЬНЫ́**, -а́я, -о́е. Такі, які прышпільваецца, не прышыты. *П. каўнерык.*

**ПРЫШПО́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго (што).* Ударыць шпорамі (па баках каня), прымушаючы рухацца. ‖ *незак.* **прышпо́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**ПРЫШРУБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* Прымацаваць пры дапамозе шрубы. *П. накрыўку.* ‖ *незак.* **прышрубо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прышрубо́ўванне**, -я, *н.*

**ПРЫШЧ**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Невялікі запалёны бугарок на скуры. *Твар у прышчах.* ‖ *памянш.* **пры́шчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ПРЫШЧАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). Пакрыты прышчамі. *П. твар.* ‖ *наз.* **прышчава́тасць**, -і, *ж.*

**ПРЫШЧА́ВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *незак.* (разм.). Пакрывацца прышчамі. ‖ *зак.* **апрышча́вець**, -ею, -ееш, -ее.

**ПРЫШЧА́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *прышчаваты.* ‖ *наз.* **прышча́васць**, -і, *ж.*

**ПРЫШЧАМІ́ЦЬ**, -чамлю́, -чэ́міш, -чэ́міць; -чэ́млены; *зак., каго-што.* Заціснуць, зашчаміць. *П. кату лапу.* ‖ *незак.* **прышчамля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**ПРЫШЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю́, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак., што.* **1.** Зрабіць перасадку часткі жывой расліны (чаранок, вочка) на тканку другой расліны, каб перадаць пэўныя ўласцівасці. **2.** *каму.* Увесці ў арганізм вакцыну для папярэджвання ці вылечвання якой-н. хваробы. *П. воспу.* **3.** *перан., каму.* Прымусіць засвоіць, зрабіць прывычным. *П. культурныя звычкі.* ‖ *незак.* **прышчэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **прышчэ́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.) *і* **прышчэ́пліванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **прышчэ́пачны**, -ая, -ае (паводле 1 і 2 знач.). *Прышчэпачныя кампаненты.*

**ПРЫШЧЭ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м. і* **ПРЫШЧЭ́ПА**, -ы, *мн.* -ы, -чэ́п, *ж.* Прышчэпленая расліна.

**ПРЫШЧЭ́ПАК**, -пка, *мн.* -пкі, -пкаў, *м.* (спец.). Частка расліны, якая перасаджваецца на тканку іншай расліны для надання ёй новых уласцівасцей.

**ПРЫШЧЭ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* **1.** *гл.* прышчапіць. **2.** *мн.* -і, -пак. Заціскачка для прымацавання да вяроўкі бялізны.

**ПРЫШЫЎНЫ́**, -а́я, -о́е. Які прышываецца, не прышпільны. *Прышыўныя манжэты.*

**ПРЫШЫ́ЦЬ**, -шы́ю, -шы́еш, -шы́е; -шы́ты; *зак., што.* **1.** Шыючы, прымацаваць. *П. гузік.* **2.** Прымацаваць, прыбіць (спец.). *П. дошку.* **3.** *перан., каму.* Ілжыва прыпісаць што-н., абвінаваціць у чым-н. (разм., неадабр.). *П. справу.* ‖ *незак.* **прышыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **прышыва́нне**, -я, *н. і* **прышы́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ПРЫШЭ́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* **1.** Прышлы, не тутэйшы чалавек. **2.** часцей *мн.* У навуковай фантастыцы: іншапланецянін, які прыляцеў на Зямлю. *Прышэльцы з космасу.* ‖ *ж.* **прышэ́ліца**, -ы, *мн.* -ы, -ліц.

**ПРЫШЭ́ПТВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* і *без дап.* (разм.). Суправаджаць якое-н. дзеянне шэптам. ‖ *наз.* **прышэ́птванне**, -я, *н.*

**ПРЫШЭ́СЦЕ**, -я, *н.* (уст.). Прыход, з'яўленне. ◊ **Да другога прышэсця** (разм., жарт.) — пра што-н. далёкае і няпэўнае. *Прыйдзецца нам чакаць да другога прышэсця.*

**ПРЫЯДА́ЦЦА** *гл.* прыесціся.

**ПРЫЯЗДЖА́ЦЬ** *гл.* прыехаць.

**ПРЫЯ́ЗНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* прыязны. **2.** Сяброўскія, добразычлівыя адносіны.

**ПРЫЯ́ЗНЫ**, -ая, -ае. Прасякнуты сяброўскімі адносінамі, дружалюбнасцю, добразычлівасцю. *Прыязная гутарка. П. чалавек.* ‖ *наз.* **прыя́знасць**, -і, *ж.*

**ПРЫЯРЫТЭ́Т**, -у, *М* -тэ́це, *м.* Першынство ў навуковым адкрыцці, вынаходстве чаго-н. *Вучоным Расіі належыць п. адкрыцця Антарктыкі.* ‖ *прым.* **прыярытэ́тны**, -ая, -ае.

**ПРЫ́ЯЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Блізка знаёмы чалавек, з якім устанавіліся сяброўскія адносіны. *Даўні п.* ‖ *ж.* **пры́яцелька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек. ‖ *прым.* **пры́яцельскі**, -ая, -ае.

**ПРЭА́МБУЛА**, -ы, *мн.* -ы, -бул, *ж.* (спец.). Уступная тлумачальная частка міжнароднага пагаднення, закона ці іншага прававога акта.

**ПРЭВАЛІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* (кніжн.). Пераважаць, мець перавагу. *Павінны п. інтарэсы справы.*

**ПРЭВЕНТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які папярэджвае што-н., засцерагальны. *Прэвентыўныя меры. П. ўдар.* ‖ *наз.* **прэвенты́ўнасць**, -і, *ж.*

**ПРЭДЫКА́Т**, -а, *М* -ка́це, *м.* **1.** У логіцы: паняцце, якое вызначае прадмет суджэння — суб'ект. **2.** У граматыцы: тое што і выказнік. ‖ *прым.* **прэдыка́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **прэдыкаты́ўны**, -ая, -ае.

**ПРЭДЫКАТЫ́ЎНАСЦЬ**, -і, *ж.* У граматыцы: катэгорыя, якая цэлым комплексам фармальных сінтаксічных сродкаў суадносіць паведамленне з тым ці іншым часавым планам рэчаіснасці.

**ПРЭЗЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст., цяпер разм., жарт.). Падарунак. *Прыміце мой п.*

**ПРЭЗЕНТА́БЕЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Відны, паважны. *П. выгляд.* ‖ *наз.* **прэзента́бельнасць**, -і, *ж.*

**ПРЭЗЕНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што* і *каму* (уст., цяпер разм., жарт.). Даць (даваць) у прэзент, падараваць (дараваць). *Я вам прэзентую сваю кнігу.*

**ПРЭЗІ́ДЫУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Выбарны орган, які кіруе сходам, нарадай, канферэнцыяй, таксама асобы, якія ўваходзяць у такі орган. *П. Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

**ПРЭЗІДЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Кіраўнік дзяржавы ў краінах з рэспубліканскай формай кіравання. *Рэзідэнцыя прэзідэнта.* **2.** Выбарны старшыня вышэйшага органа ў некаторых буйных навукова-даследчых установах, таварыствах, кангрэсах. ‖ *прым.* **прэзідэ́нцкі**, -ая, -ае.

**ПРЭЗІДЭ́НЦТВА**, -а, *н.* **1.** Пасада прэзідэнта. **2.** Час дзейнасці прэзідэнта.

**ПРЭЗУ́МПЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Меркаванне, якое лічыцца правільным, пакуль не даказана адваротнае. *П. невінаватасці* (у крымінальным праве: становішча, паводле якога чалавек лічыцца невінаватым да таго часу, пакуль яго віна не даказана ў законным парадку).

**ПРЭЙСКУРА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Даведнік цэн на тавары і віды паслуг. *Цэны строга па прэйскуранту.* ‖ *прым.* **прэйскура́нтны**, -ая, -ае.

**ПРЭЛА́Т**, -а, *М* -ла́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* У каталіцкай і некаторых пратэстанцкіх цэрквах: вышэйшая духоўная асоба. ‖ *прым.* **прэла́цкі**, -ая, -ае.

**ПРЭЛІМІНА́РНЫ**, -ая, -ае (спец.). Папярэдні, першапачатковы (перагавор, пагадненне). *Прэлімінарны дагавор.* ‖ *наз.* **прэлімінарнасць**, -і, *ж.*

**ПРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які падвергся прэнню, затхлы. *Прэлае лісце.* ‖ *наз.* **прэ́ласць**, -і, *ж.*

**ПРЭЛЬ**, -і, *ж.* Тое, што сапрэла. *Яблыкі з прэллю. Патыхае прэллю.*

**ПРЭЛЮ́ДЫЯ**, *мн.* -і, -дый, *ж.* **1.** Уступная частка музычнага твора. *П. да раманса. П. да вялікіх падзей* (перан.). **2.** Невялікі музычны твор. *П. для фартэпіяна.*

**ПРЭМ'Е́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *прэм'ер-міністр.* **2.** Акцёр, які выконвае першыя ролі (спец.). ‖ *ж.* **прэм'е́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (да 2 знач.; разм.). ‖ *прым.* **прэм'е́рскі**, -ая, -ае.

**ПРЭМ'Е́РА**, -ы, *мн.* -ы, -м'ер, *ж.* Першы паказ спектакля, цыркавой праграмы, фільма. ‖ *прым.* **прэм'е́рны**, -ая, -ае.

**ПРЭМ'Е́Р-МІНІ́СТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кіраўнік урада большасці краін свету, у тым ліку ў Рэспубліцы Беларусь.

**ПРЭМІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак. і незак., каго (што).* Узнагародзіць (узнагароджваць) прэміяй. *П. лепшых працаўнікоў.* ‖ *наз.* **прэміравáнне**, -я, *н.*

**ПРЭ́МІЯ**, -і, *мн.* -і, -мій, *ж.* Грашовае або інш. матэрыяльнае заахвочванне як узнагарода за што-н. *Атрымаць прэмію на конкурсе.* ○ **Нобелеўская прэмія** — міжнародная прэмія за адкрыцці ў навуцы, за поспехі ў літаратуры і пад. **Страхавая прэмія** (спец.) — узнос страхавальніка страхавой установе. ‖ *прым.* **прэмія́льны**, -ая, -ае. *П. фонд. Выдаць прэміяльныя* (наз.).

**ПРЭНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Металічны прут. *Падрыхтаваць некалькі жалезных прэнтаў.* ‖ *памянш.* **прэ́нцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ПРЭПАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак. і незак., каго-што* (спец.). Вырабіць (вырабляць) прэпарат (у 1 знач.) з каго-, чаго-н. *П. птушку.* ‖ *незак.* **прэпарава́нне**, -я, *н.*

**ПРЭПАРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Частка жывёльнага або расліннага арганізма, прыгатаваная для лабараторнага даследавання або дэманстрацыі. **2.** Хімічны або фармацэўтычны прадукт. *Хімічны п. Медыцынскі п.* ‖ *прым.* **прэпара́тны**, -ая, -ае.

**ПРЭПАРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Спецыяліст, які вырабляе прэпараты (у 1 знач.). ‖ *прым.* **прэпара́тарскі**, -ая, -ае.

**ПРЭРАГАТЫ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -тыў, *ж.* (кніжн.). Выключнае права, прывілея дзяржаўнага органа, службовай асобы. *Прэрагатывы ўлады.*

**ПРЭ́РЫІ**, -рый, *адз.* прэ́рыя, -і, *ж.* Вялікі стэп на чарназёмных землях у Паўночнай Амерыцы.

**ПРЭС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Механізм для моцнага сціскання чаго-н., разгладжвання, апрацоўкі чаго-н. ціскам. *Гідраўлічны п. Палажыць што-н. пад п.* (пад што-н. цяжкае). ‖ *прым.* **прэ́савы**, -ая, -ае (спец.).

**ПРЭС-**[1]**...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да прэсы, напр.: *прэс-бюро, прэс-клуб, прэс-сакратар, прэс-служба.*

**ПРЭС-**[2]**...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да прэса, напр.: *прэс-бювар, прэс-астатак, прэс-ліццё, прэс-форма, прэс-эфект;* 2) спрэсаваны, напр.: *прэс-бетон, прэс-выраб, прэс-маса, прэс-метал.*

**ПРЭ́СА**, -ы, *ж.* Перыядычныя выданні (газеты, часопісы). *Прагрэсіўная п.*

**ПРЭС-АТАШЭ́**, *нескл., м.* Супрацоўнік дыпламатычнага прадстаўніцтва па пытаннях друку.

**ПРЭС-БЮРО́**, *нескл., н.* **1.** Пастаянна дзеючы орган інфармацыі пры рэдакцыі буйной газеты, агенцтве друку, пасольствах, прадстаўніцтвах. **2.** Рэдакцыйны апарат для абслугоўвання друку на перыяд з'ездаў, канферэнцый, нарад.

**ПРЭ́СІНГ**, -а, *м.* Адна з найбольш актыўных форм абароны ў некаторых спартыўных гульнях (хакеі, баскетболе). *Палітычны п.* (перан.). ‖ *прым.* **прэ́сінгавы**, -ая, -ае.

**ПРЭС-КАНФЕРЭ́НЦЫЯ**, -і, *ж.* Сустрэча прадстаўнікоў сродкаў масавай іфармацыі, тэлебачання з дзяржаўнымі, палітычнымі, навуковымі і інш. дзеячамі для высвятлення актуальных праблем грамадства і паведамлення пэўных звестак.

**ПРЭСНАВО́ДНЫ**, -ая, -ае. Які водзіцца ў прэснай вадзе, мае адносіны да прэснай вады. *Прэснаводныя рыбы.*

**ПРЭ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Без солі або з недастатковай колькасцю солі (ці кіслаты, вастрыні). *Прэсная вада. Прэсная страва.* **2.** *перан.* Пазбаўлены жывасці, займальнасці, нецікавы, сумны (разм.). *Прэсныя жарты.* ‖ *наз.* **прэ́снасць**, -і, *ж.*

**ПРЭС-ПАП'Е́**, *нескл., н.* Прыналежнасць пісьмовай прылады ў выглядзе акруглай асновы з нацягнутай на яе прамакальнай паперай.

**ПРЭС-СЛУ́ЖБА**, -ы, *ж.* Аддзел збору і апрацоўкі інфармацыі па матэрыялах друку.

**ПРЭСТЫ́Ж**, -у, *м.* (кніжн.). Аўтарытэтны ўплыў, павага, якой карыстаецца хто-, што-н. *Сацыяльны п. Падтрымліваць свой п.* ‖ *прым.* **прэсты́жны**, -ая, -ае. *Прэстыжная спецыяльнасць.*

**ПРЭС-ЦЭ́НТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аддзел інфармацыйнага і арганізацыйнага абслугоўвання журналістаў (на кангрэсах, фестывалях і пад.).

**ПРЭТЭНДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; *незак.* **1.** *на каго-што.* Заяўляць правы, разлічваць на што-н., дабівацца чаго-н. *П. на кіруючую пасаду.* **2.** *на што.* Лічыць сябе ўладальнікам якіх-н. дадатных якасцей, жадаць, каб іх прызналі іншыя. *П. на інтэлігентнасць.*

**ПРЭТЭНДЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая прэтэндуе на што-н. *П. на вакантную пасаду.* ‖ *ж.* **прэтэндэ́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **прэтэндэ́нцкі**, -ая, -ае.

**ПРЭТЭ́НЗІЯ**, -і, *мн.* -і, -зій, *ж.* **1.** Прад'яўленне сваіх правоў на валоданне кім-, чым-н., атрыманне чаго-н. *П. на спадчыну.* **2.** Паводзіны таго, хто жадае прызнання за ім якіх-н. добрых якасцей, якія ён сабе прыпісвае. *Чалавек з прэтэнзіямі. П. на элегантнасць.* ◊ **Быць у прэтэнзіі** *на каго* — адчуваць незадаволенасць, крыўду ў адносінах да каго-н. ‖ *прым.* **прэтэнзі́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *Прэтэнзійная заява.*

**ПРЭТЭНЦЫЁЗНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** З прэтэнзіямі (у 2 знач.). *Прэтэнцыёзныя паводзіны.* **2.** Які прэтэндуе на арыгінальнасць, вычварны. *Прэтэнцыёзна апранацца* (прысл.). ‖ *наз.* **прэтэнцыёзнасць**, -і, *ж.*

**ПРЭФЕ́КТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У Старажытным Рыме: адміністрацыйная, судовая або ваенная пасада, а таксама асоба, якая яе займае. **2.** У шэрагу дзяржаў: асобы інстытут прадстаўнікоў цэнтральнага (Румынія) або рэгіянальнага (Расія) урада на месцах. **3.** У некаторых краінах: начальнік гарадской паліцыі.

**ПРЭФЕКТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -тур, *ж.* **1.** У Рымскай імперыі: адміністрацыйная адзінка. **2.** У Францыі і некаторых іншых краінах: службовы апарат прэфекта (у 2 знач.). **3.** У Францыі і некаторых іншых краінах: канцылярыя прэфекта (у 2 і 3 знач.). **4.** У Японіі, Марока і некаторых іншых краінах: адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка. ‖ *прым.* **прэфекту́рны**, -ая, -ае.

**ПРЭФЕРА́НС**, -а, *м.* Род картачнай гульні.

**ПРЭ́ФІКС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *прыстаўка* (у 2 знач.). ‖ *прым.* **прэфікса́льны**, -ая, -ае. *П. спосаб утварэння слоў.*

**ПРЭЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Гнісці, тлець ад сырасці або цеплыні. *Мокрае сена прэе.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Станавіцца вільготным, сырым ад цеплыні. *Зямля вясной прэе.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Павольна даходзіць да гатоўнасці на жары, на невялікім агні. *Бульба прэе.* **4.** Пацець, пакрывацца потам (разм.). *Прэе ў ватоўцы на такім сонцы.* ‖ *зак.* **сапрэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е (да 1 і 4 знач.), **упрэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е (да 1, 3 і 4 знач.) *і* **увапрэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е (да 1, 3 і 4 знач.). ‖ *наз.* **прэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**ПРЭЦЭДЭ́НТ**, -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Выпадак, які служыць прыкладам, апраўданнем для падобных выпадкаў у будучым. *Гэты ўчынак не мае прэцэдэнтаў у мінулым. Павучальны п.*

**ПРЭЧ**, *прысл.* Убок, далей ад якога-н. месца, далоў. *Пайшоў п. адгэтуль!* ◊ **Рукі прэч!** (у знач. выкл.) — патрабаванне не ўмешвацца не ў сваю справу.

**ПСАВА́ЦЦА**, псуюся, псуе́шся, псуе́цца; псуёмся, псуяце́ся, псую́цца; псава́ўся, -ва́лася; псу́йся; *незак.* Станавіцца непрыгодным, дрэнным. *Мяса пачало п. Зрок псуецца. Настрой псуецца.* ‖ *зак.* **сап-**

**сава́цца**, -сую́ся, -суе́шся, -суе́цца; -суёмся, -суяце́ся, -сую́цца; -сава́ўся, -ва́лася; -су́йся *і* **папсава́цца** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*) -суе́цца. ‖ *наз.* **псава́нне**, -я, *н.*

**ПСАВА́ЦЬ**, псую́, псуе́ш, псуе́; псуём, псуяце́, псую́ць; псава́ў, -ва́ла; псуй; псава́ны; *незак., каго-што.* Прыводзіць у непрыгоднасць, рабіць дрэнным. *П. машыну. П. сваё здароўе. П. адносіны. П. дзіця дрэнным выхаваннем.* ‖ *зак.* **сапсава́ць**, -сую́, -суе́ш, -суе́; -суём, -суяце́, -сую́ць; -сава́ў, -ва́ла; -су́й; -сава́ны *і* **папсава́ць**, -сую́, -суе́ш, -суе́; -суём, -суяце́, -сую́ць; -су́й; -сава́ны. ‖ *наз.* **псава́нне**, -я, *н.*

**ПСАЛО́М**, -лма́, *мн.* -лмы́, -лмо́ў, *м.* Род рэлігійнага песнапення. ‖ *прым.* **псало́мны**, -ая, -ае.

**ПСАЛО́МШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Служыцель у царкве, які дапамагае святару пры адпраўленні абрадаў; дзяк. ‖ *прым.* **псало́мшчыцкі**, -ая, -ае.

**ПСАЛТЫ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Частка Бібліі, кніга псалмоў. *Чытаць П. над нябожчыкам.* ‖ *прым.* **псалты́рны**, -ая, -ае.

**ПСЕЎДА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. несапраўдны, ілжывы, напр.: *псеўдавучоны, псеўдагалюцынацыя, псеўдагібрыд, псеўдакласічны, псеўдамастацтва, псеўданавуковы.*

**ПСЕЎДАНІ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Выдуманае імя, прозвішча, пад якім іншы раз выступаюць пісьменнікі, мастакі. *Пісаць пад псеўданімам.* ‖ *прым.* **псеўдані́мны**, -ая, -ае.

**ПСІК**, *выкл.* Вокрык, якім адганяюць ката. *П. адсюль!*

**ПСІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Пра сабаку, звычайна вялікага. **2.** Пах сабакі, яго поўсці. *Смярдзіць псінай.* **3.** Сабачае мяса. ‖ *прым.* **псі́ны**, -ая, -ае.

**ПСІХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Псіхічна неўраўнаважаны або псіхічна хворы чалавек. ‖ *ж.* **псіхі́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ПСІХА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да псіхікі, псіхалогіі (у 2 і 3 знач.), напр.: *псіхааналіз, псіхагенны, псіхагігіена, псіханеўроз, псіхатэрапія;* 2) які мае адносіны да псіхіятрыі, псіхалогіі (у 1 знач.), напр.: *псіханеўралогія, псіхафармакалогія, псіхафізіялогія.*

**ПСІХАВА́ЦЬ**, псіху́ю, псіху́еш, псіху́е; псіху́й; *незак.* (разм.). Траціць псіхічную раўнавагу; праяўляць нервознасць. ‖ *аднакр.* **псіхану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́.

**ПСІХАЛАГІ́ЗМ**, -у, *м.* Паглыблены паказ псіхічных, душэўных перажыванняў. *П. у літаратуры.*

**ПСІХАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука, якая вывучае працэсы і заканамернасці псіхалагічнай дзейнасці. **2.** Сукупнасць псіхічных працэсаў, што абумоўліваюць пэўны род дзейнасці. *П. творчасці.* **3.** Душэўны склад, псіхіка. *Раскрыць псіхалогію героя.* ‖ *прым.* **псіхалагі́чны**, -ая, -ае.

**ПСІХАПА́Т**, -а, *М* -па́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек з хворай псіхікай. ‖ *ж.* **псіхапа́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **псіхапа́цкі**, -ая, -ае.

**ПСІХАПАТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які вывучае агульныя заканамернасці праяўлення расстройстваў псіхічнай дзейнасці. ‖ *прым.* **псіхапаталагі́чны**, -ая, -ае.

**ПСІХАПА́ТЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Паталагічны стан псіхічнай дзейнасці чалавека, звычайна спадчыннага паходжання. ‖ *прым.* **псіхапаты́чны**, -ая, -ае.

**ПСІХАСТЭ́НІК**, -а, *мн.* -і, *м.* (спец.). Чалавек, які хварэе на псіхастэнію. ‖ *ж.* **псіхастэні́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (разм.).

**ПСІХАСТЭНІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Нервовае захворванне, якое праяўляецца ў павышанай уражлівасці, няўпэўненасці ў сабе, пастаянных сумненнях, назойлівых думках і пад. ‖ *прым.* **псіхастэні́чны**, -ая, -ае.

**ПСІХАТЭРАПІ́Я**, -і, *ж.* Метад лячэння хворага сродкамі псіхічнага ўздзеяння. ‖ *прым.* **псіхатэрапеўты́чны**, -ая, -ае.

**ПСІ́ХІКА**, -і, *ДМ* -хіцы, *ж.* Сукупнасць душэўных адчуванняў, уяўленняў, пачуццяў, думак як адлюстраванне ў свядомасці аб'ектыўнай рэчаіснасці; душэўны склад чалавека. *Здаровая п.* ‖ *прым.* **псіхі́чны**, -ая, -ае. *Псіхічныя хваробы* (хваробы расстройства мазгавых цэнтраў, нервовай сістэмы). *Псіхічная атака* (від атакі, разлічанай на застрашванне, падаўленне волі, псіхікі тых, хто абараняецца).

**ПСІХІЯ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач, спецыяліст па псіхіятрыі.

**ПСІХІЯТРЫ́Я**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які займаецца псіхічнымі захворваннямі і іх лячэннем. ‖ *прым.* **псіхіятры́чны**, -ая, -ае.

**ПСІХО́З**, -у, *м.* **1.** Псіхічная хвароба, а таксама ўвогуле ненармальнасць, дзівацтва ў псіхіцы чалавека. **2.** *перан.* Нервовасць, нагнятанне страху ў адносінах да чаго-н., істэрыя. *Ваенны п.*

**ПСІХО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па псіхалогіі. **2.** Знаток чалавечай псіхалогіі. *Тонкі п. чалавечых душ.*

**ПСТРЫК**, *выкл., у знач. вык.* (разм.). Пстрыкаць. *П. яго ў лоб* (або *па лбе*).

**ПСТРЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго-што.* Даваць пстрычкі каму-н. *П. па лбе.* **2.** *чым* і *без дап.* Утвараць кароткія рэзкія гукі. *П. пальцамі.* **3.** *перан.* Злавацца, выказваючы незадавальненне (разм.). *Чаго пстрыкаеш, чым незадаволены?* ‖ *аднакр.* **пстры́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **пстры́канне**, -я, *н.*

**ПСТРЫКУ́ХА**, -і, *ДМ* -ку́се, *мн.* -і, -ку́х, *ж.* (разм.). **1.** Пра жанчыну, якая чым-н. незадаволена і злуецца, фыркае. **2.** *перан.* Пра рухавую, вясёлую асобу, якая лёгка пырхае, нібы страказа.

**ПСТРЫ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Адрывісты ўдар пры разгібанні ўказальнага або сярэдняга пальца, сагнутага вялікім пальцам. *Даць пстрычку каму-н.*

**ПСЯР**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Наглядчык за паляўнічымі сабакамі і ўдзельнік палявання. ‖ *прым.* **пся́рскі**, -ая, -ае.

**ПСЯ́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань, *ж.* Памяшканне для сабак (пераважна паляўнічых), сабакарня. ‖ *прым.* **пся́рны**, -ая, -ае.

**ПТА́СТВА**, -а, *н., зб.* Птушкі.

**ПТАХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Птушка (звычайна вялікая).

**ПТА́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). Дробная птушка. ‖ *памянш.* **птушаня́тка**, -а, *мн.* -і, -так, *н.*

**ПТУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Пакрытая пер'ем і пухам пазваночная жывёліна з крыламі, дзвюма канечнасцямі і дзюбай. *Вадаплаўныя птушкі. Пеўчыя птушкі. Вольная п.* (таксама перан.: пра свабоднага, ні ад каго не залежнага чалавека). *Важная п.* (перан.: пра важнага чалавека; разм.). **2.** *зб.* Такія жывёлы як прадмет развядзення, палявання, прадукт харчавання. *Хатняя п. Рэзаная п. Марожаная п.* **3.** Паметка ў выглядзе дзвюх рысак, якія ўтвараюць востры вугал унізе. *Паставіць птушку на полі сшытка.* ‖ *памянш.* **пту́шачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 і 3 знач.). ‖ *прым.* **птушы́ны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *З птушынага палёту* (з вышыні, адкуль усё відаць). *Жыць на птушыных правах* (не маючы трывалага становішча, забеспячэння; разм.). *Толькі птушынага малака не хапае* (пра поўны дастатак; разм., жарт.).

**ПТУШКАГАДО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Развядзенне свойскай птушкі як галіна сельскай гаспадаркі. ‖ *прым.* **птушкагадо́ўчы**, -ая, -ае.

**ПТУШКАЛО́Ў**, -ло́ва, *мн.* -ло́вы, -ло́ваў, *м.* Чалавек, які займаецца лоўляй птушак (пераважна пеўчых).

**ПТУШКАЛО́ЎСТВА**, -а, *н.* Лоўля птушак як промысел.

**ПТУШКАФЕ́РМА**, -ы, *мн.* -ы, -фе́рм, *ж.* Прадпрыемства, якое займаецца развядзеннем свойскай птушкі. *Саўгасная п.*

**ПТУ́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Памяшканне для свойскай птушкі. **2.** Работнік, які даглядае свойскую птушку. ‖ *ж.* **пту́шніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 2 знач.).

**ПУА́НТЫ**, -аў, *адз.* пуа́нт, -а, *М* -нце, *м.* Балетныя туфлі з цвёрдым наскам. *Стаяць на пуантах, танцаваць на пуантах* (абапіраючыся на наскі такіх туфель).

**ПУ́БЛІКА**, -і, *ж., зб.* **1.** Людзі, якія знаходзяцца дзе-н. у якасці гледачоў, слухачоў, наведвальнікаў і пад., а таксама ўвогуле людзі, грамадства. *Тэатральная п. Чытацкая п. На публіку* (гаварыць, рабіць і пад.: напаказ; разм., неадабр.). **2.** Грамадства або асобныя людзі, аб'яднаныя па якіх-н. агульных прыметах (разм., жарт. або неадабр.). *Няварта вадзіцца з такой публікай.*

**ПУБЛІКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *незак., што.* Аб'яўляць для

агульнага ведама праз друк. *П. матэрыялы з'езда.* ‖ *зак.* **апублікава́ць**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -кава́ны; *наз.* **апублікава́нне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **публіка́цыя**, -і, *ж. і* **публікава́нне**, -я, *н.*

**ПУБЛІКА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* публікаваць. **2.** *мн.* -і, -цый. Тое, што апублікавана, надрукавана. *Газетная п.*

**ПУБЛІЦЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пісьменнік, які займаецца публіцыстычнай дзейнасцю. ‖ *ж.* **публіцы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **публіцы́сцкі**, -ая, -ае.

**ПУБЛІЦЫ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Літаратура па грамадска-палітычных пытаннях сучаснасці. ‖ *прым.* **публіцысты́чны**, -ая, -ае.

**ПУБЛІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ажыццяўляецца ў прысутнасці публікі, адкрыты. *Публічнае выступленне. Публічна* (прысл.) *заявіць.* **2.** Прызначаны для шырокага наведвання, агляду і пад. *Публічная бібліятэка. Публічная выстаўка.* ○ **Публічны дом** — памяшканне, дзе прастытуткі прымаюць наведвальнікаў.

**ПУ́ГА**, -і, *ДМ* пу́зе, *мн.* -і, пуг, *ж.* Прымацаваны да пугаўя кавалак спецыяльна звітай вяровачкі або сырамяці, якім паганяюць жывёлу. *Раменная п.* ◊ **Як пугаю па вадзе** (разм.) — без пэўнага выніку, без знаку. ‖ *памянш.* **пу́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж. Слаўную пужку звіў.*

**ПУГАЎЁ**, -я́, *мн.* -го́ўі, -го́ўяў *і (з ліч. 2, 3, 4)* -гаўі́, -гаўёў, *н.* Дзяржанне, да якога прымацоўваецца пуга.

**ПУГА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Дзіцячая цацка ў выглядзе пісталета.

**ПУД**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Руская мера вагі, роўная 16,38 кілаграма. ◊ **Пуд солі з'есці** *з кім-н.* (разм.) пражыць разам доўгі час і добра азнаёміцца з кім-н. ‖ *памянш.* **пу́дзік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ПУ́ДЗЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Парода пакаёвых сабак з кучаравай шэрсцю.

**ПУ́ДЗІЛА**, -а, *мн.* -ы, -дзіл, *н.* **1.** Чучала для адпужвання птушак у агародах, садах. **2.** *перан.* Пра чалавека, які адпужвае сваім выглядам, а таксама пра чалавека, вычварна, безгустоўна апранутага (разм.). **3.** Тое, чым (той, кім) палохаюць, прадмет боязі, страху.

**ПУ́ДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *незак.* Пужацца, палохацца (звычайна пра жывёлу). ‖ *зак.* **спу́дзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца, **напу́дзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца *і* **успу́дзіцца** *(1 і 2 ас. не ўжыв.)*, -дзішся.

**ПУ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак., каго (што).* Страшыць, пужаць (жывёлу); пужаючы, разганяць, адганяць адкуль-н. *Машыны пудзілі жывёлу. П. варон.* ‖ *зак.* **спу́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны, **напу́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны *і* **успу́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны.

**ПУ́ДЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (разм.). Промах у стральбе, няўдалы стрэл. ◊ **Даць пудла** (разм.) — 1) не пацэліць, прамахнуцца; 2) зрабіць памылку.

**ПУДО́ВІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Пудовая гіра.

**ПУДО́ВЫ**, -ая, -ае. Вагой у адзін пуд.

**ПУ́ДРА**, -ы, *ж.* Дробны, мяккі і пахучы парашок для касметычных мэт. *П. для твару.* ○ **Цукровая пудра** — цукар у выглядзе дробнага парашку, які ўжыв. ў кулінарыі.

**ПУ́ДРАНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Каробачка для пудры.

**ПУ́ДРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *незак.* Пакрываць сабе твар пудрай. ‖ *зак.* **напу́дрыцца**, -руся, -рышся, -рыцца *і* **папу́дрыцца**, -руся, -рышся, -рыцца. ‖ *наз.* **пу́дранне**, -я, *н.*

**ПУ́ДРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *незак., каго-што.* Пакрываць пудрай. *П. твар. П. нос.* ‖ *зак.* **напу́дрыць**, -ру, -рыш, -рыць; -раны *і* **папу́дрыць**, -ру, -рыш, -рыць; -раны. ‖ *наз.* **пу́дранне**, -я, *н.*

**ПУ́ДЫНГ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Запяканка з круп, мукі, тварагу і пад. з фруктамі, ласункамі ці іншымі прыправамі. *Тварожны п. Яблычны п.*

**ПУЖА́НЫ**, -ая, -ае. Такі, якога часта і многа пужалі. *Пужаная варона і куста баіцца* (прыказка).

**ПУЖА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* Адчуваць страх, палохацца. ‖ *зак.* **спужа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **напужа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ПУЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак., каго (што).* Наводзіць страх, палохаць. ‖ *зак.* **спужа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **напужа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны. *Напужаў мех, дык і торба страшна* (прыказка). ‖ *аднакр.* **пужну́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **пужа́нне**, -я, *н.*

**ПУ́ЖКА** *гл.* пуга.

**ПУЖЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Схільны да спалоху, які ўсяго баіцца, палахлівы; які выражае спалох. *П. позірк. Пужліва* (прысл.) *азірацца.* ‖ *наз.* **пужлі́васць**, -і, *ж.*

**ПУ́ЗА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (разм.). Тое, што і *жывот. П. разгадаваў* (пра тоўстага чалавека). *Ад пуза* (есці, наесціся: колькі хочаш, да адвалу).

**ПУЗАНО́К**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.* Рыба сямейства селядцовых.

**ПУЗА́ТЫ**, -ая, -ае, (разм.). **1.** З вялікім жыватом. *П. мужчына.* **2.** *перан.* Нізкі і шырокі, з пукатымі бакамі. *П. чыгун. П. самавар.* ‖ *наз.* **пуза́тасць**, -і, *ж.*

**ПУЗЫ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Напоўнены паветрам празрысты шарык у вадкасці, вадкай масе. *П. у шкле* (ужо застылы). *Пузыры ў цесце.* **2.** Балючае ўздуцце скуры, пухір. *П. ад апёку.* **3.** Перапончаты полы орган у целе чалавека, жывёлы, які змяшчае ў сабе якую-н. вадкасць. *Мачавы п. Жоўцевы п.* **4.** Гумавы мяшок, напоўнены паветрам або вадой, які ўжыв. для розных мэт (разм.). *Вучыцца плаваць з пузырамі.* ‖ *памянш.* **пузыро́к**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* (да 1 і 2 знач.); *прым.* **пузырко́вы**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.). ‖ *прым.* **пузы́рны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.).

**ПУЗЫРО́К**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* **1.** *гл.* пузыр. **2.** Невялікая шкляная бутэлечка. *П. з лекамі.*

**ПУЗЫ́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты пузырамі, з пузырамі ў сярэдзіне. *Пузырыстае шкло.*

**ПУЗЫ́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *незак.* (разм.). **1.** Узнімацца, пакрывацца пузырамі. *Раствор пузырыцца.* **2.** Пра тканіну, адзенне: надзімацца ад ветру. *Кашуля пузырыцца.*

**ПУК**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Звязка, ахапак. *П. лёну.* **2.** Сцябло зялёнай цыбулі з суквеццем наверсе. *Цыбуля пайшла ў пукі.* ‖ *памянш.* **пучо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.*

**ПУКА́ТАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* пукаты. **2.** *мн.* -і, -ей. Пукатае месца. *Пукатасці паверхні.*

**ПУКА́ТЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *выпуклы. Пукатае дно. П. лоб.* ‖ *наз.* **пука́тасць**, -і, *ж.*

**ПУЛО́ВЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Род трыкатажнага світара без каўняра і засцежак. ‖ *прым.* **пуло́верны**, -ая, -ае.

**ПУЛЬВЕРЫЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для распырсквання вадкасці дробнымі часцінкамі. ‖ *прым.* **пульверыза́тарны**, -ая, -ае.

**ПУЛЬВЕРЫЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Распырскванне вадкасці пульверызатарам.

**ПУ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* Партыя гульні ў прэферанс, а таксама графа на аркушы для запісу вынікаў гульні.

**ПУЛЬНУ́ЦЬ** *гл.* пуляць.

**ПУ́ЛЬПА**, -ы, *ж.* (спец.). **1.** Рыхлая злучальная тканка, якая запаўняе поласць зуба. **2.** Сумесь вады і грунту або горнай пароды, якая атрымліваецца пры земляных і горных работах гідраўлічным спосабам. **3.** Зробленая і разрэджаная руда.

**ПУЛЬС**, -у, *м.* **1.** Рытмічны рух сценак артэрый, які выклікаецца дзейнасцю сэрца. *Намацаць п.* **2.** *перан., чаго.* Тэмп жыцця, руху чаго-н. *П. грамадскага жыцця.* ‖ *прым.* **пу́льсавы**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**ПУЛЬСАВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -суе; *незак.* **1.** Пра сэрца, артэрыі: мець пульс, біцца. *На скроні ледзь прыметна пульсавала жылка.* **2.** Праяўляцца з перыядычнымі зменамі ў сіле, напружанні і пад. (спец.). ‖ *наз.* **пульсава́нне**, -я, *н. і* **пульса́цыя**, -і, *ж.*

**ПУЛЬСА́РЫ**, -аў, *адз.* -са́р, -а, *м.* (спец.). Касмічныя крыніцы выпрамяненняў, якія дасягаюць Зямлі ў выглядзе імпульсаў, што перыядычна ўзнікаюць.

**ПУЛЬСУ́ЮЧЫ**, -ая, -ае (спец.). Які праяўляецца, дзейнічае з перыядычнымі зменамі, рытмічна. *П. струмень.*

**ПУЛЬТ**, -а, *М* -льце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Падстаўка для нот у выглядзе нахіленай рамы на высокай ножцы. *Дырыжорскі п.* **2.** Пункт, адкуль адбываецца аўтаматычнае кіраванне чым-н. *Дыспетчарскі п. П. электрастанцыі.* ‖ *прым.* **пу́льтавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПУЛЬТАВА́Я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* Памяшканне, у якім змяшчаецца пульт (у 2 знач.), пульты.

**ПУ́ЛЬХНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пухлы, быццам надзьмуты; тоўсты. *Пульхныя вусны. Пульхныя рукі.* **2.** Мяккі, пышны. *Пульхныя аладкі.* **3.** Лёгкі, пухкі. *П. снег. Пульхная зямля.* ‖ *наз.* **пу́льхнасць**, -і, *ж.*

**ПУЛЯ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Маладая курыца, адкормленая для стала.

**ПУЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* (разм.). Кідаць чым-н. куды-н. ці ў каго-н. *П. камякі зямлі.* ‖ *аднакр.* **пульну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **пуля́нне**, -я, *н.*

**ПУ́МА**, -ы, *мн.* -ы, пум, *ж.* Буйны лясны драпежнік сямейства кашачых, які водзіцца ў Амерыцы.

**ПУ́НАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Невялікая паўночная птушка сямейства аўсянкавых.

**ПУНКТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Месца, якое характарызуецца пэўнымі адзнакамі і можа быць выкарыстана для неабходных дзеянняў. *Камандны п. Зборны п. Прызыўны п. Перагаворны п. Самы высокі п. гары.* **2.** Асобнае палажэнне, раздзел у складзе чаго-н. (дакумента, выкладання і пад.). *Асноўныя пункты даклада. Выкласці па пунктах* (таксама перан.: паслядоўна). **3.** Асобны момант, перыяд у развіцці падзей, дзеяння. *Кульмінацыйны п.* **4.** Асноўнае паняцце геаметрыі, а таксама механікі, фізікі — месца, якое не мае вымярэння, мяжа адрэзка лініі. *П. перасячэння прамых. П. апоры. П. прылажэння сіл. П. сонцастаяння.* **5.** Тэмпературная мяжа, пры якой рэчыва змяняе свой стан. *П. замярзання. П. плаўлення.* ○ **Населены пункт** — горад, пасёлак, вёска і пад., дзе пастаянна жывуць людзі. ◊ **Пункт погляду** (або **гледжання**) *на што* — чыя-н. думка, погляд на што-н. *У мяне на гэта свой пункт погляду.* ‖ *памянш.* **пу́нкцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 2 знач.).

**ПУНКТУА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Вельмі дакладны, акуратны ў выкананні чаго-н. *П. чалавек. Пунктуальнае выкананне.* ‖ *наз.* **пунктуа́льнасць**, -і, *ж.*

**ПУНКТУА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Вучэнне аб сістэме знакаў прыпынку і правілах іх выкарыстання ў пісьмовым тэксце. *Засвоіць пунктуацыю.* ‖ *прым.* **пунктуацы́йны**, -ая, -ае.

**ПУНКЦІ́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лінія, якая ўтвараецца з кропак, кароткіх рысак. ‖ *прым.* **пункці́рны**, -ая, -ае. *Пункцірнае акрэсленне сітуацыі* (перан.; у агульных рысах).

**ПУ́НКЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Пракол (тканкі, поласці, сасуда) з лячэбнымі або дыягнастычнымі мэтамі. ‖ *прым.* **пункцы́йны**, -ая, -ае.

**ПУНСАВЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Рабіцца пунсовым, чырвоным. *П. ад радасці.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Віднецца (пра што-н. пунсовае). *Пунсавеюць суніцы на паляне.*

**ПУНСОВА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. з пунсовым адценнем, напр.: *пунсова-ружовы, пунсова-чырвоны.*

**ПУНСО́ВЫ**, -ая, -ае. Ярка-чырвоны. *П. мак. Пунсовыя шчокі.* ‖ *наз.* **пунсо́васць**, -і, *ж.*

**ПУНШ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Напітак з рому, закіпячонага з цукрам, вадой і фруктамі. ‖ *прым.* **пу́講шавы**, -ая, -ае.

**ПУ́НЯ**, -і, *мн.* -і, пунь, *ж.* Вялікая халодная будыніна для захоўвання сена, адрына. ‖ *памянш.* **пу́нька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.*

**ПУП**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Упадзіна на сярэдзіне жывата пасля адпадзення пупавіны. **2.** Страўнік у птушак. *Курыны п.* **3.** Круглае ці вострае заканчэнне розных прадметаў (разм.). *Дарабіць п. у шапцы.* ◊ **Браць на пуп** (разм.) — цяжка падымаць, перанапружвацца. **Пуп зямлі** (разм., іран.) — пра таго, хто лічыць сябе галоўным, цэнтрам чаго-н. ‖ *памянш.* **пупо́к**, -пка́, *мн.* -пкі́, -пко́ў, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**ПУПАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н. *ж.* Трубкападобны орган, які злучае зародак чалавека (або жывёлы) з целам маці і служыць каналам для жыўлення зародка. ‖ *прым.* **пупаві́нны**, -ая, -ае.

**ПУПО́К**, -пка́, *мн.* -пкі́, -пко́ў, *м.* **1.** Тое, што і *пуп* (у 1 і 2 знач.). **2.** Невялікі акруглы выступ. *Кепка з пупком.* ‖ *памянш.* **пупо́чак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* ‖ *прым.* **пупко́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **пупо́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Пупочная грыжа.*

**ПУПЫ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Круглы зародак ліста, парастка, кветкі. *З'явіліся пупышкі на дрэвах.* ‖ *прым.* **пупы́шкавы**, -ая, -ае (спец.).

**ПУРГА́**, -і́, *ДМ* -рзе́, *мн.* пу́ргі, -аў, *ж.* Моцная снегавая завея, завіруха.

**ПУ́РПУР**, -у, *м.* **1.** Цёмна- або яркачырвоны колер (першапачаткова каштоўнае фарбавальнае рэчыва). **2.** Дарагое адзенне з чырвонай тканіны як знак раскошы і велічы (уст.). **3.** *перан.* Чырвань, палымяны колер. *П. зары. П. сцягоў.* ‖ *прым.* **пурпу́рны**, -ая, -ае *і* **пурпуро́вы**, -ая, -ае.

**ПУРПУРНА-...** *і* **ПУРПУРОВА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) пурпурны, пурпуровы, з пурпурным адценнем, напр.: *пурпурна-малінавы, пурпурна-ружовы, пурпурова-фіялетавы, пурпурна-чырвоны;* 2) пурпурны, пурпуровы ў спалучэнні з іншым асобным колерам, напр.: *пурпурна-сіні, пурпурова-чорны.*

**ПУРЫ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Строгія, непрымірымыя адносіны да запазычанняў; захаваць што-н. (напр., мову) у нязменным выглядзе, у поўнай чысціні, без усялякіх новаўвядзенняў. ‖ *прым.* **пуры́сцкі**, -ая, -ае *і* **пурысты́чны**, -ая, -ае.

**ПУРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Прыхільнік пурызму. ‖ *ж.* **пуры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **пуры́сцкі**, -ая, -ае.

**ПУСК** *гл.* пусціць.

**ПУСКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да пуску (*гл.* пусціць у 3 знач.), да прыводу ў дзеянне, у рабочы стан, напр.: *пусканаладачны, пускарэгуліровачны, пускарэгулюючы.*

**ПУСКАВЫ́** *гл.* пусціць.

**ПУСКА́ЦЦА** *гл.* пусціцца.

**ПУСКА́ЦЬ** *гл.* пусціць.

**ПУСТАБРЭ́Х**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). **1.** Пра сабаку, які брэша без патрэбы. **2.** *перан.* Пра балбатлівага чалавека, пустаслова.

**ПУСТАВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ту́е; *незак.* Пра якое-н. памяшканне: быць пустым, незанятым. *Кватэра пакуль пустуе.*

**ПУСТАГАЛО́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Бесталковы, неразумны. *П. чалавек.* ‖ *наз.* **пустагало́васць**, -і, *ж.*

**ПУСТАЗВО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *пустаслоў.*

**ПУСТАЗВО́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.* (разм.). Займацца пустымі размовамі без справы. ‖ *наз.* **пустазво́нства**, -а, *н.*

**ПУСТАЗЕ́ЛЛЕ**, -я, *н.* Дзікарослая расліна, якая засмечвае пасевы культурных раслін, а таксама (зб.) сукупнасць такіх раслін. *П. заглушыла бульбу.* ‖ *прым.* **пустазе́льны**, -ая, -ае.

**ПУСТАЛЬГА́**, -і́, *ДМ* -льзе́, *мн.* -тэ́льгі, -аў. **1.** *ж.* Драпежная птушка сямейства сакаліных. **2.** *м.* і *ж.* Легкадумны, пусты чалавек (разм., неадабр.).

**ПУСТАМЕ́ЛЯ**, -і, *ДМ* -ю, *Т* -ем, *м.; ДМ* -і, *Т* -яй (-яю), *ж., мн.* -і, -ме́ль (разм.). Тое, што і *пустаслоў.*

**ПУСТАРО́ГІ**, -ая, -ае. З пустымі рагамі, якія ўяўляе сабой адросткі лобных касцей, пакрытых рагавым рэчывам. *Сямейства пустарогіх* (наз.: авечкі, козы, антылопы і інш.).

**ПУСТАСЛО́ВІЦЬ**, -о́ўлю, -о́віш, -о́віць; *незак.* (разм.). Займацца пустаслоўем.

**ПУСТАСЛО́Ў**, -о́ва, *мн.* -о́вы, -о́ваў, *м.* (разм.). Той, хто гаворыць пустое, нясе лухту.

**ПУСТАСЛО́ЎЕ**, -я, *н.* (разм.). Пустыя размовы, балбатня. ‖ *прым.* **пустасло́ўны**, -ая, -ае.

**ПУСТАТА́**, -ы́, *ДМ* -стаце́, *мн.* пусто́ты, пусто́т, *ж.* **1.** *гл.* пусты. **2.** *адз.* Адсутнасць імкненняў, інтарэсаў (кніжн.). *Душэўная п.* **3.** Пустая (у 1 знач.) прастора (спец.). *Пустоты ў ліцці.* ‖ *прым.* **пусто́тны**, -ая, -ае (да 3 знач.; спец.).

**ПУСТАЦВЕ́Т**, -у *і* -а, *М* -цвеце, *м.* **1.** -у. Кветка без завязі, якая не дае пладоў. **2.** -а, *мн.* -ы, -аў, *перан.* Чалавек, які не зрабіў у жыцці нічога карыснага. *Развялося нахлебнікаў і пустацветаў.* ‖ *прым.* **пустацве́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПУСТАЦЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (спец.). Пусты ў сярэдзіне. *Пустацелая цэгла.* ‖ *наз.* **пустаце́ласць**, -і, *ж.*

**ПУ́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Пусты, без расліннасці ўчастак зямлі або пакінуты ўчастак зямлі, які не апрацоўваецца. *Забудаваць пустку дамамі.* **2.** Пустое, бязлюднае памяшканне. ‖ *прым.* **пу́сткавы**, -ая, -ае.

**ПУСТО́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; *незак.* **1.** *што.* Рабіць пустым, бязлюдным, руйнаваць. *Вайна пустошыла ўсё на зямлі.* **2.** *перан., каго-што.* Пазбаўляць маральных сіл, душэўнага багацця. *П. душу.*

**ПУСТЫ́**, -áя, -óе. **1.** Пра ёмішча: нічым не запоўнены, вольны. *П. карабь. Пустыя кішэні. З пустога* (наз.) *і Саламон не нальe* (прыказка). *На п. жывот* (не пад'еўшы; разм.). *П. шар. Пустая парода* (без металу; спец.). **2.** *перан.* Беззмястоўны, беспадстаўны, несур'ёзны. *П. чалавек. Пустая задума. Пустая кніга.* ◊ **З пустымі рукамі** (разм.) — нічога не прынёсшы або нічога не атрымаўшы. *Прыйшлі з пустымі рукамі.* **Каб табе (яму, вам, ім) пуста было** (разм.) — выражэнне лёгкай незадаволенасці чыімі-н. дзеяннямі. ‖ *наз.* **пустата́**, -ы́, *ДМ* -стацé, *ж.*

**ПУСТЫ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пустыня. **2.** Пусты, бязлюдны. *Пустынныя вуліцы.*

**ПУСТЫ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -тынь, *ж.* Вялікая прастора з беднай расліннасцю ці ўвогуле без яе. *Бязлюдная п. Лядовая п.* ‖ *прым.* **пусты́нны**, -ая, -ае. *Пустынная зона* (зона пустыні). *П. востраў.*

**ПУСТЫ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). **1.** Гумавая соска для груднога дзіцяці; падманка. **2.** *перан.* Аб кім-, чым-н. пустым і легкадумным, аб чым-н. беззмястоўным (пагард.). *Гэта п. толькі пра ўборы думае.*

**ПУСТЭ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які з рэлігійных меркаванняў адмовіўся ад зносін з людзьмі і пасяліўся ў бязлюдным месцы. *Манах-п.* **2.** *перан.* Пра чалавека, які жыве ў адзіноце, у бязлюдным месцы. ‖ *ж.* **пустэ́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **пустэ́льніцкі**, -ая, -ае. *Пустэльніцкае жыццё.*

**ПУСТЭ́ЛЬНІЦТВА**, -а, *н.* (кніжн.). Жыццё пустэльніка. ‖ *прым.* **пустэ́льніцкі**, -ая, -ае.

**ПУСТЭ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пустэльня. **2.** Бязлюдны, пусты. *П. дом.* ‖ *наз.* **пустэ́льнасць**, -і, *ж.*

**ПУСТЭ́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Тое, што і *пустыня.* ‖ *прым.* **пустэ́льны**, -ая, -ае.

**ПУСТЭ́ЧА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што і *пустата* (у 1 і 2 знач.). *П. ў бараках. П. ў сэрцы* (перан.). **2.** Тое, што і *пустка* (у 1 знач.). *П., зарослая палыном.* ‖ *прым.* **пустэ́чны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПУСЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ée; *незак.* Станавіцца пустым, пустынным. *Начныя вуліцы пусцеюць.* ‖ *зак.* **спусце́ць**, -ée *і* **апусце́ць**, -ée; *наз.* **апусце́нне**, -я, *н.*

**ПУСЦІ́ЦЦА**, пушчýся, пýсцішся, пýсціцца; *зак., у што* і *з інф.* **1.** Адправіцца куды-н. *П. ў далёкую дарогу. П. бягом.* **2.** Пачаць рабіць што-н. у адпаведнасці са значэннем назоўніка або інфінітыва. *П. ў скокі. П. ў спрэчкі. П. разважаць.* ‖ *незак.* **пускáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**ПУСЦІ́ЦЬ**, пушчý, пýсціш, пýсціць; пýшчаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Перастаць трымаць, даць каму-, чаму-н. волю, выпусціць. *П. птушку на волю.* **2.** *каго-што.* Дазволіць, даць магчымасць каму-, чаму-н. ісці ці ўвайсці куды-н. *П. у адпачынак. П. жывёлу на пашу. П. у хату. П. начаваць.* **3.** *што.* Прывесці ў рух, у дзеянне, у рабочы стан. *П. гадзіннік. П. струмень вады. П. аўтаматычную лінію.* **4.** *каго-што.* Прымусіць, даць магчымасць каму-н. рухацца якім-н. чынам ці куды-н. *П. каня наўскач. П. плуг глыбей у зямлю.* **5.** *каго-што.* У спалучэнні з назоўнікамі ўжыв. ў знач. падвергнуць чаму-н. або выкарыстаць з якімі-н. мэтамі, накіраваць у якую-н. сферу дзейнасці. *П. у абыходак. П. участак пад авёс.* **6.** *што.* Распаўсюдзіць, разнесці (разм.). *П. пагалоску. П. плётку.* **7.** *што.* Кінуць у каго-, што-н. *П. камень у акно. П. грошы на вецер* (перан.; патраціць дарэмна, упустую). **8.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *што.* Даць з сябе парастак, карані. *П. атожылкі.* **9.** *( 1 і 2 ас. не ўжыв.).* Не вытрымаўшы напружання, цяжару, перастаць утрымліваць што-н. (разм.). *У мяшку пусціла шво.* **10.** *асаб.* і *безас.* Адтаяць (разм.). *Балота месцамі пусціла. Замарозіла, а потым зноў пусціла.* ◊ **Пусціць (з) агнём** або **(з) дымам** *што* (разм.) — спаліць. **Пусціць з торбай** *каго* (разм., уст.) — давесці да жабрацтва. **Пусціць на свет** *каго-што* (разм.) — нарадзіць, даць жыццё. **Пусціць юшку** *каму* (разм.) — ударыць, разбіць нос да крыві. ‖ *незак.* **пускáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **пуск**, -у, *м.* (да 3 знач.). *П. ракеты.* ‖ *прым.* **пускавы́**, -áя, -óе. *П. аб'ект. Пускавая ўстаноўка.*

**ПУСЦЯКО́ВІНА**, -ы, *мн.* -ы, -він, *ж.* (разм.). Што-н., не вартае увагі, дробязь.

**ПУСЦЯКО́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Не варты ўвагі, дробязны. *Пусцяковае пытанне. Пусцяковая справа* (лёгка выканальная).

**ПУ́ТА**, -а, *М* пýце, *мн.* -ы, пут, *н.* **1.** Вяроўка, якой перавязваюць пярэднія ногі каню ў час пасьбы. **2.** *мн.* Вяроўкі, рамяні і пад., якімі звязваюць рукі і ногі для пазбаўлення свабоды руху (уст.). **3.** *мн., перан.* Тое, што пазбаўляе волі, прыгнятае. *Путы рабства.*

**ПУ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак., каго.* Звязваць путам ногі коням. *П. каня.* ‖ *зак.* **спу́таць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *наз.* **пу́танне**, -я, *н.*

**ПУТЧ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Спроба дзяржаўнага перавароту, а таксама арганізаваны групай змоўшчыкаў сам пераварот. ‖ *прым.* **путчы́сцкі**, -ая, -ае.

**ПУТЧЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік путчу. ‖ *прым.* **путчы́сцкі**, -ая, -ае.

**ПУФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Род мэблі — нізкае мяккае сядзенне без спінкі. ‖ *памянш.* **пу́фік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ПУХ**, -у, *м.* **1.** Мяккія і тонкія валаскі пад пер'ем птушак, шэрсцю жывёл. *Гусіны п. Казіны п.* **2.** Тонкія лёгкія валаскі на скуры твару, на целе. *П. на твары ў дзіцяці.* **3.** Тоненькія валаконцы на раслінах, пладах. *Тапаліны п.* ◊ **Ні пуху ні пер'я** (разм.) — пажаданне ўдачы. **У пух і прах** (разм.) — зусім, канчаткова. *Разбіць у пух і прах.* ‖ *памянш.* **пушо́к**, -шкý, *м.* *Над верхняй губой прабіваецца п.* ‖ *прым.* **пухо́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Пуховая хустка* (з казінага пуху).

**ПУХА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да пуху (у 1 знач.), напр.: *пухавязальны, пухапрадзенне.*

**ПУХАВІ́К**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* **1.** Куртка ці паліто на пуховай пракладцы. **2.** Тое, што і *пярына.*

**ПУХІ́Р**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Балючае ўздутае месца на скуры. *П. ад апёку.* **2.** Тое, што і *пузыр* (у 1 знач.). *Пухіры на вадзе.* ‖ *прым.* **пухі́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПУХІ́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты пухірамі, з пухірамі ўсярэдзіне, пузырысты. ‖ *наз.* **пухі́рыстасць**, -і, *ж.*

**ПУ́ХКІ**, -ая, -ае. Мяккі, пушысты. *Пухкая падушка.* ‖ *наз.* **пу́хкасць**, -і, *ж.*

**ПУХЛІ́НА**, -ы, *ж.* Хваравітае ўздуцце тканак арганізма, ненармальнае разрастанне тканкі якога-н. органа. *Дабраякасная п.* ‖ *прым.* **пухлі́нны**, -ая, -ае.

**ПУ́ХЛЫ**, -ая, -ае. Круглявы, мяккі, некалькі ўспухлы. *Пухлыя губы.* ‖ *наз.* **пу́хласць**, -і, *ж.*

**ПУХНА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Пушысты, мяккі. *Пухнатая валошка. Пухнатая шапачка.* **2.** Поўны, пухлы. *П. тварык.* ‖ *наз.* **пухна́тасць**, -і, *ж.*

**ПУ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; пух, -хла; -ні; *незак.* Станавіцца круглявым, пакрывацца пухлінай. *Ногі пухнуць.* ‖ *зак.* **успу́хнуць**, -ну, -неш, -не; успýх, -хла; -ні *і* **апу́хнуць**, -ну, -неш, -не; апýх, -хла; -ні.

**ПУХО́ВЫ** *гл.* пух.

**ПУХО́ЎКА**[1], -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -хóвак, *ж.* Пучок мяккіх пушыстых валокнаў, які ўжываецца для пудрання.

**ПУХО́ЎКА**[2], -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -хóвак, *ж.* Тое, што і *порхаўка.*

**ПУЦЕАБХО́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які сочыць за спраўнасцю чыгуначных пуцей. ‖ *ж.* **пуцеабхо́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ПУЦЕ́ЕЦ**, -цéйца, *мн.* -цéйцы, -цéйцаў, *м.* Работнік чыгункі, чыгуначнай гаспадаркі.

**ПУЦЕ́ЙСКІ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да чыгуначных пуцей зносін. *Інжынер пуцейскай службы.*

**ПУЦЕПРАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мост, які праходзіць над дарогай або скрыжаваннем дарог. ‖ *прым.* **пуцеправо́дны**, -ая, -ае.

**ПУЦЕЎКЛА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* Укладка рэйкавага пуці.

**ПУЦЕЎКЛА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Машына для ўкладкі рэйкавага пуці цэлымі звёнамі.

**ПУЦЁЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -цёвак, *ж.* **1.** Афіцыйны дакумент, які выдаецца асобе пры накіраванні куды-н. *П. ў санаторый. Турысцкая п.* **2.** Лісток у вадзіцеляў транспарту з указаннем маршруту і задання (спец.). ◊ **Пуцёўка ў жыццё** — пра які-н. паваротны момант у жыцці, які дае магчымасць займацца карысцай працоўнай дзейнасцю. ‖ *прым.* **пуцёвачны**, -ая, -ае.

**ПУЦІ́НА**, -ы, *ж.* **1.** Сезон масавай лоўлі рыбы. *Зімовая п.* **2.** *мн.* -ы, -ці́н. Тое, што і *пуцявіна* (паэт.). ‖ *прым.* **пуці́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ПУЦЬ**, -і́, *мн.* -і́, -е́й, *м.* Чыгуначная або трамвайная каляя, лінія. *Служба пуці. Запасны п.* ‖ *прым.* **пуцявы́**, -а́я, -о́е. *П. абходчык.*

**ПУЦЯВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ві́н, *ж.* (паэт.). Шлях, жыццёвая дарога. *Пуцявіны маладосці.* ‖ *прым.* **пуцяві́нны**, -ая, -ае.

**ПУЦЯВО́ДНЫ**, -ая, -ае. У выразах: 1) **пуцяводная зорка** — а) зорка, якая ўказвае напрамак дарогі; б) *перан.* пра таго, хто вызначае чый-н. жыццёвы шлях, развіццё дзейнасці (кніжн.). *Ён быў не толькі братам, а і пуцяводнай зоркай усё жыццё;* 2) **пуцяводная ніць** (кніжн.) — тое, што дапамагае знайсці правільны шлях, рашэнне.

**ПУЧО́К**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* **1.** *гл.* пук. **2.** Мноства чаго-н., што разыходзіцца з аднаго месца, адной кропкі. *П. праменяў.* ‖ *прым.* **пучко́вы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПУ́ЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *незак.* Станавіцца выпуклым, узнімацца ўгору. *Лёд пучыцца.* ‖ *зак.* **успу́чыцца**, -ыцца *і* **вы́пучыцца**, -ыцца.

**ПУ́ЧЫЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыць; *незак.* Уздымаць, рабіць выпуклым. *Вецер пучыць брызент* (безас.). ‖ *незак.* **успу́чыць**, -ыць *і* **вы́пучыць**, -ыць. ‖ *наз.* **пу́чанне**, -я, *н.*

**ПУШБО́Л**, -а, *м.* Спартыўная камандная гульня з вялікім скураным мячом, які стараюцца прапіхнуць у вароты праціўніка. *Конны п.* ‖ *прым.* **пушбо́льны**, -ая, -ае.

**ПУ́ШКА**[1], -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Гармата, якая мае насцільную траекторыю стральбы і прызначаецца для паражэння наземных, надводных і паветраных цэлей. **2.** Апарат для лячэння сродкамі радыеактыўнага выпраменьвання (спец.). *Кобальтавая п.* ‖ *прым.* **пу́шачны**, -ая, -ае.

**ПУ́ШКА**[2], -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). Тое, што і *каробка* (у 1 знач.). *П. запалак.* ‖ *прым.* **пу́шачны**, -ая, -ае.

**ПУШНІ́НА**, -ы, *ж., зб.* Шкуры пушных жывёл, з якіх вырабляюць футра, футравыя тавары.

**ПУШНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які мае каштоўнае футра. *П. звер.* **2.** Які з'яўляецца пушнінай, адносіцца да здабычы, апрацоўкі ці да продажу пушніны. *П. тавар. П. промысел. П. аўкцыён.*

**ПУШО́К** *гл.* пух.

**ПУ́ШЧА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Вялікі і густы, цяжкапраходны лес. *Белавежская п.*

**ПУШЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Часцінка пуху ці чаго-н. іншага, што лёгкасцю нагадвае пух.

**ПУШЫ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Пакрыты мяккім густым пухам, мяккай шэрсцю. *П. кот.* **2.** Вельмі мяккі, лёгкі. *Пушыстыя валасы.* ‖ *наз.* **пушы́стасць**, -і, *ж.*

**ПУ́ШЫЦЬ**, -ыць; *безас.; незак., каго-што* (разм.). Распіраць. *Жывот пушыць.* ‖ *зак.* **успу́шыць**, -ыць; -аны. ‖ *наз.* **пу́шанне**, -я, *н.*

**ПУШЫ́ЦЬ**, -шу́, -шы́ш, -шы́ць; -шы́м, -шыце́, -ша́ць; *незак.* **1.** *што.* Рабіць пушыстым. *П. валасы. П. пер'е.* **2.** *перан., каго (што).* Моцна лаяць, распякаць (разм.). ‖ *зак.* **распушы́ць**, -шу́, -шы́ш, -шы́ць; -шы́м, -шыце́, -ша́ць; -пу́шаны. ‖ *наз.* **пушэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ПХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* (разм.). **1.** Пхаць, штурхаць іншага ці адзін аднаго. **2.** Адштурхвацца, упіраючыся ў што-н. *П. шастом.*

**ПХАЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Дакранацца рэзкім рухам, кароткім ударам, рухам ад сябе, штурхаць. *П. у грудзі. П. суседа локцем. П. тачку.* **2.** *каго-што.* Паспешліва або з цяжкасцю запіхваць. *П. рэчы ў чамадан.* **3.** *каму што.* Прымушаць есці, піць многа ці супраць жадання. *П. ежу дзіцяці.* ‖ *аднакр.* **пхнуць**, -ну, -неш, -не; -нём, -няце́, -нуць; -ні (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **пха́нне**, -я, *н.*

**ПХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *незак.* (разм.). Ісці з цяжкасцю. *П. з клункамі.*

**ПЧАЛА́**, -ы́, *мн.* пчо́лы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) пчалы́, пчол, *ж.* Насякомае, якое перапрацоўвае кветкавы нектар на мёд. ‖ *памянш.* **пчо́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* ‖ *прым.* **пчалі́ны**, -ая, -ае. *Пчалінае малачко* (сакрэт слінных залоз рабочых пчол, якім яны выкормліваюць лічынак на пэўнай стадыі развіцця; спец.).

**ПЧАЛАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *пчаляр.*

**ПЧАЛАВО́ДСТВА**, -а, *н.* Тое, што і *пчалярства.* ‖ *прым.* **пчалаво́дны**, -ая, -ае *і* **пчалаво́дчы**, -ая, -ае. *Пчалаводны інвентар. Пчалаводчая гаспадарка.*

**ПЧАЛЬНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Тое, што і *пасека* (у 2 знач.).

**ПЧАЛЯ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Чалавек, які займаецца пчалярствам.

**ПЧАЛЯ́РСТВА**, -а, *н.* Развядзенне пчол як галіна сельскай гаспадаркі. ‖ *прым.* **пчаля́рскі**, -ая, -ае. *П. інструмент. Пчалярская справа.*

**ПЧОЛАЛЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Лячэнне ўкусамі пчол (пчаліным ядам).

**ПЧОЛАТЭРАПІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Тое, што і *пчолалячэнне.*

**ПШАНІ́ЦА**, -ы, *ж.* Хлебны злак, а таксама яго зерне, якое ідзе на выраб белай мукі. *Азімая п. Насенная п.* ‖ *памянш.* **пшані́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* ‖ *прым.* **пшані́чны**, -ая, -ае.

**ПШЫК**, -у, *м.* (разм.). Нічога, пустата. *Застаўся адзін п.*

**ПЫЖ**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Войлачная ці кардонная затычка, якой забіваюць зарад у зброі, што зараджаецца з дула. **2.** Пракладка ўсярэдзіне патрона, якая аддзяляе зарад ад кулі, шроту. ‖ *прым.* **пыжо́вы**, -ая, -ае.

**ПЫ́ЖЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Цяля паўночнага аленя ва ўзросце да аднаго месяца, а таксама футра яго. ‖ *прым.* **пы́жыкавы**, -ая, -ае. *Пыжыкавая шапка.*

**ПЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Гаварыць невыразна, неразборліва. ‖ *наз.* **пы́канне**, -я, *н.*

**ПЫЛ**, -у, *м.* **1.** Найдрабнейшыя сухія часцінкі, якія лятаюць у паветры або аселі на паверхню чаго-н. *Сціраць п. з мэблі. Дарожны п. Аж п. курыць. П. у вочы пускаць* (перан.: хвалячыся, абманваць; разм.). **2.** Тое, што і *пылок* (у 2 знач.). ‖ *памянш.* **пыло́к**, -лку́, *м.* (да 1 знач.). ‖ *павел.* **пылі́шча**, -а, *ж.* (да 1 знач.; разм.). ‖ *прым.* **пы́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **пылавы́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.). *Пыльнае паветра. Пылавыя буры* (буры, якія ўзнімаюць пыл, пясок, слаі ўрадлівай глебы і пераносяць іх за тысячы кіламетраў).

**ПЫЛА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да пылу (у 1 знач.), напр.: *пылаадсмоктвальны, пылаадсос, пылаахоўны, пылаводанепранікальны, пылаўлоўнік, пылаўлоўны, пылаўсмоктвальны, пылаўтварэнне.*

**ПЫЛАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Які мае выгляд пылу, парашку. ‖ *наз.* **пылападо́бнасць**, -і, *ж.*

**ПЫЛАСО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апарат для ачышчэння ад пылу памяшканняў, мэблі. ‖ *прым.* **пыласо́сны**, -ая, -ае.

**ПЫЛІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Часцінка пылу.

**ПЫЛІ́ЦЬ**, пылю́, пы́ліш, пы́ліць; *незак.* **1.** Узнімаць, наносіць пыл. *П. венікам.* **2.** *што.* Пакрываць пылам. *П. адзенне.* ‖ *зак.* **напылі́ць**, -ылю́, -ы́ліш, -ы́ліць (да 1 знач.) *і* **запылі́ць**, -ылю́, -ы́ліш, -ы́ліць; -ы́лены (да 2 знач.). ‖ *звар.* **пылі́цца**, пылю́ся, пы́лішся, пы́ліцца (да 2 знач.); *зак.* **запылі́цца**, -ылю́ся, -ы́лішся, -ы́ліцца.

**ПЫЛО́К**, -лку́, *м.* **1.** *гл.* пыл. **2.** Мужчынскія палавыя клеткі расліны, якія знаходзяцца ў тычынках і апладняюць расліну пры пападанні на рыльца песціка. ‖ *прым.* **пылко́вы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ПЫ́ЛЬНІК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Верхняя частка тычынкі кветкі, у якой знаходзіцца пылок. ‖ *прым.* **пы́льнікавы**, -ая, -ае.

**ПЫ́ЛЬНІК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Плашч, які засцерагае ад пылу.

**ПЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пыл. **2.** Пакрыты, насычаны пылам. *П. дыван. Работа не пыльная* (перан.: лёгкая, якая не пат-

рабue напружання; разм.). **3.** Які служыць для сцірання пылу. *Пыльная ануча.*

**ПЫ́РНІК**, -у, *м.* Род травяністых раслін сямейства злакавых, асобныя віды якіх з'яўляюцца шкодным пустазеллем. ‖ *прым.* **пы́рнікавы**, -ая, -ае.

**ПЫРНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́; -ну́ць; -ні; *зак., каго-што чым* (разм.). Ударыць чым-н. вострым. *П. штыком у грудзі.*

**ПЫ́РСКАЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -кавак, *ж.* (разм.). Тое, чым пырскаюць.

**ПЫ́РСКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак., чым.* **1.** Пакрываць сябе пырскамі чаго-н. *П. адэкалонам.* **2.** Пырскаць на каго-н., адзін на аднаго ці вакол сябе. *П. вадой.* ‖ *зак.* **папы́рскацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **пы́рсканне**, -я, *н.*

**ПЫ́РСКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *чым.* Раскідаць кроплі вадкасці, дробныя часцінкі чаго-н. *П. слінай ад злосці* (злавацца, быць раз'юшаным). *Шнур пырскаў іскрамі.* **2.** *каго-што чым* або *што на каго-што.* Рассейваць дробныя пыркі дзе-н., абліваць дробнымі пырскамі. *П. духамі.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разлятацца пырскамі (кроплямі і пад.); ліцца струменем, з сілай. *Фантан пырскае. Гразь пырскае з-пад капытоў. Кроў пырскае з раны. Пырскае злосць* (перан.). **4.** Смяяцца (не стрымаўшыся або ў адказ на што-н. смешнае). *П. у кулак* (хаваючы смех). **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Разбягацца імкліва, адразу. *П. у розныя бакі.* ‖ *зак.* **пы́рснуць**, -ну, -неш, -не; -ні, **напы́рскаць**, -аю, -аеш, -ае (*чым* або *што на каго-што;* да 2 знач.) *і* **папы́рскаць**, -аю, -аеш, -ае. *Пырснулі слёзы. Пырснуць ад смеху. Дзеці пырснулі ўрассыпную.* ‖ *наз.* **пы́рсканне**, -я, *н.*

**ПЫ́РСКІ**, -аў, *адз.* пы́рска, -і, *ДМ* -рсцы, *ж.* **1.** Кроплі вадкасці, якія разлятаюцца пры ўдары, усплёску. **2.** *чаго.* Дробныя часцінкі цвёрдага цела (шкла, лёду і пад.), якія разлятаюцца ад удару.

**ПЫ́РХАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; *незак.* Пералятаць з месца на месца. *Берасцянкі пырхалі з галінкі на галінку.* ‖ *аднакр.* **пы́рхнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **пы́рханне**, -я, *н.*

**ПЫ́РХАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** З шумам выпускаць паветра з ноздраў. *Пырхаюць коні.* **2.** *перан.* Смяяцца, утвараючы гукі носам, губамі (разм.). **3.** *перан.* Злавацца, выказваць незадавальненне чым-н. (разм.). *Чаго пырхаеш, чым незадаволены?* ‖ *аднакр.* **пы́рхнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **пы́рханне**, -я, *н.*

**ПЫ́СА**, -ы, *мн.* -ы, пыс, *ж.* **1.** Пярэдняя частка галавы (з губамі і ноздрамі) жывёліны. **2.** Тое, што і *твар* (у 1 знач.; разм., груб.). *Выставіў пысу.*

**ПЫТА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Знак прыпынку (?), які ставіцца ў канцы пытальнага сказа.

**ПЫТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які змяшчае ў сабе пытанне (у 1 знач.), выяўляе яго. *П. сказ. П. позірк.*

**ПЫТА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Зварот, які патрабуе адказу. *Адказаць на п. Прамое п.* **2.** Тое ці іншае становішча, акалічнасць як прадмет вывучэння і меркавання, задача, якая патрабуе вырашэння, праблема. *Аграрнае п. Нацыянальнае п.* **3.** *чаго.* Справа, акалічнасць, якая датычыцца чаго-н., залежыць ад чаго-н. *П. жыцця і смерці* (надзвычай важная справа). ○ **Адкрытае пытанне** — нявырашанае пытанне. **Рытарычнае пытанне** — стылістычны прыём у мове: сцвярджанне ў форме пытання.

**ПЫТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак., каго-што, чаго, пра каго-што, аб кім-чым* і *з дадан. сказам.* Тое, што і пытаць. *П. дарогі. П. пра здароўе.*

**ПЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *каго (што), з дадан.* і *без дап.* Звяртацца да каго-н. з пытаннем, каб даведацца пра што-н., высветліць што-н. *У людзей пытай, ды свой розум май* (прыказка). *Хто пытае, той не блудзіць* (прыказка). *П. вучня* (з мэтай высветліць веды). **2.** *што* і *чаго.* Прасіць дазволу на што-н., звяртацца з якой-н. просьбай. *П. дазволу. П. парады.* **3.** *што.* Патрабаваць прад'явіць (дакумент). *П. пасведчанне.*

**ПЫТЛЯВА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.). Пытляваная мука.

**ПЫТЛЯВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Пра муку: дробна размолаты і прасеяны. **2.** Выпечаны з такой мукі. *П. хлеб.*

**ПЫТЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны; *незак., што.* Дробна размолваць і прасейваць папярэдне ачышчанае зерне. ‖ *наз.* **пытлява́нне**, -я, *н.* і **пытлёўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ПЫ́ХА**, -і, *ДМ* пы́се, *ж.* Фанабэрыстасць, ганарыстасць. *Збіць пыху з каго-н.*

**ПЫ́ХКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Утвараць гукі, выпускаючы пару, газ. *Пыхкае паравоз.* **2.** Выпускаць час ад часу дым (пры курэнні). *П. люлькай.* ‖ *аднакр.* **пы́хнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **пы́хканне**, -я, *н.*

**ПЫХЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Фанабэрысты, празмерна ганарысты. *П. чалавек. Пыхлівая пастава.* ‖ *наз.* **пыхлі́васць**, -і, *ж.*

**ПЫ́ЦЕЛЬ**, пы́тля і пы́тлю, *мн.* пы́тлі, пы́тляў, *м.* **1.** пы́тля. Вальцовы млын для пытлявання. **2.** пы́тлю. Пытляваная мука. ◊ **Даць (задаць) пытлю** *каму* (разм.) — даць наганяй, аб'явіць вымову. ‖ *прым.* **пы́цельны**, -ая, -ае.

**ПЫ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Круглая пульхная булка. *Мядовыя пышкі.* ‖ *прым.* **пы́шачны**, -ая, -ае.

**ПЫ́ШНЫ**, -ая, -ае. **1.** Лёгкі, нібы ўзбіты. *Пышныя валасы.* **2.** Раскошны, багаты. *П. убор. П. прыём.* ‖ *наз.* **пы́шнасць**, -і, *ж.*

**ПЫ́ШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *незак.* Празмерна ганарыцца, задавацца. *Няма чаго п.*

**ПЭ́НДЗАЛЬ**, -дзля, *мн.* -дзлі, -дзляў, *м.* Пучок шчаціння, валасоў на ручцы для нанясення фарбы, клею на што-н. *Малярны п. П. мастака. Валодаць пэндзлем* (умець маляваць карціны). ‖ *памянш.* **пэ́ндзлік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **пэ́ндзлевы**, -ая, -ае.

**ПЭР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тытул вышэйшага дваранства (у Англіі, Францыі), а таксама асоба, якая носіць гэты тытул. ‖ *прым.* **пэ́рскі**, -ая, -ае.

**ПЭ́ЎНА. 1.** *прысл.* Надзейна, безумоўна. *Пасяджэнне адбудзецца п.* **2.** *пабочн. сл.* Відаць, відавочна, мабыць. *Ён, п., сёння не прыедзе.*

**ПЭ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Дакладна вызначаны, прызначаны. *Сустрэцца ў пэўным месцы.* **2.** Ясны, несумненны. *Даць п. адказ.* **3.** Некаторы, той ці іншы. *У працы выяўлены пэўныя недахопы.* **4.** Такі, якому можна даверыцца, надзейны. *П. чалавек. Пэўная схованка.* **5.** Упэўнены, цвёрды. *Ісці пэўным крокам.* ‖ *наз.* **пэ́ўнасць**, -і, *ж.* (да 1, 2, 4 і 5 знач.).

**ПЭ́ЦКАЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (разм.). Той, хто пэцкае, дрэнна робіць што-н. *Ты сапраўдны мастак ці п.?*

**ПЭЦКАНІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Няўмела, неахайна, брудна выкананая работа.

**ПЭ́ЦКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** *у што, чым* і *без дап.* Забруджвацца, пэцкаць сябе чым-н. *П. ў гразь.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Станавіцца брудным. *Светлае адзенне хутка пэцкаецца.* **3.** Вельмі марудна рабіць што-н. (разм.). *Дакуль вы будзеце п. з гэтай справай?* ‖ *зак.* **вы́пэцкацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 2 знач.), **апэ́цкацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 2 знач.), **запэ́цкацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 2 знач.), **спэ́цкацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 2 знач.), **напэ́цкацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 3 знач.; разм.) *і* **упэ́цкацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **пэ́цканне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**ПЭ́ЦКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго-што ў што* і *чым.* Забруджваць, вымазваць. *П. адзенне. П. рукі.* **2.** Рабіць брудна, няўмела (разм.). *Не малюе, а пэцкае.* ◊ **Пэцкаць рукі** *аб каго-што* (разм.) — быць замешаным у што-н. непрыстойнае, нізкае, звязанае з кім-н. ‖ *зак.* **вы́пэцкаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 1 знач.), **апэ́цкаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 1 знач.), **запэ́цкаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 1 знач.), **спэ́цкаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 1 знач.), **напэ́цкаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 2 знач.) *і* **упэ́цкаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны (да 1 знач.). ‖ *аднакр.* **пэ́цнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1 знач.; разм.). ‖ *наз.* **пэ́цканне**, -я, *н.*

**ПЭ́ЦНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** *гл.* пэцкаць. **2.** *каго (што), па чым.* Ударыць. *П. па твары.*

**ПЮПІ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Падстаўка для нот у выглядзе нахіленай рамкі, дошчачкі на ножцы.

**ПЮРЭ́**, *нескл., н.* Ежа або прыправа да стравы з працёртай агародніны; наогул працёртая маса з фруктаў, ягад або агародніны. *Бульбяное п.*

**ПЯВУ́Н**, певуна́, *мн.* певуны́, певуно́ў, *м.* (разм.). Той, хто любіць пець, многа

спявае. ‖ *ж.* **пяву́ха**, -і, *ДМ* -ву́се, *мн.* -і, -ву́х.

**ПЯВУ́ЧЫ**, -ая, -ае. Меладычны, падобны на спеў. *Пявучая гаворка.* ‖ *наз.* **пяву́часць**, -і, *ж.*

**ПЯ́ДЗЕНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Начны матыль-шкоднік, вусені якога, рухаючыся, выгінаюць сярэднюю частку цела, нібы мераюць зямлю пядзямі.

**ПЯ́ДЗЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Старая мера даўжыні, роўная адлегласці паміж расшыранымі вялікім і ўказальным пальцамі. ◊ **Лоб на сем пядзяў** (разм.) — вельмі разумны. **Ні пядзі** (звычайна пра зямлю, не аддаць, не ўступіць і пад.) — ніколькі, нават самай малой часткі.

**ПЯКА́РНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да выпечкі хлеба. *Пякарная справа.*

**ПЯКА́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань, *ж.* Прадпрыемства па выпечцы хлебных вырабаў.

**ПЯКА́РСКІ** *гл.* пекар.

**ПЯКЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* пекла. **2.** *перан.* Вельмі моцны, а таксама нясцерпны (пра што-н. непрыемнае; разм.). *Пякельная спёка. П. боль.*

**ПЯКО́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Адчуванне пякучага болю ў страваводзе.

**ПЯКУ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны спальваць, паліць, які выклікае адчуванне апёку. *Пякучыя прамяні сонца. П. боль.* **2.** *перан.* Які востра перажываецца, пакутлівы. *Пякучае гора.* ‖ *наз.* **пяку́часць**, -і, *ж.*

**ПЯЛЕ́ГАВАЦЬ**, -гую, -гуеш, -гуе; -гуй; -гаваны; *незак., каго-што* (разм.). Песціць, любоўна даглядаць. *П. дзіця.* ‖ *наз.* **пяле́гаванне**, -я, *н.*

**ПЯЛЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Прасцінка, у якую закручваюць і спавіваюць грудных дзяцей. **2.** Суцэльны покрыў, тое што завалаквае, зацягвае з усіх бакоў (кніжн.). *Пушыстая п. снегу. П. туману.* ◊ **З пялёнак** (разм.) — з ранняга дзяцінства. ‖ *прым.* **пялёначны**, -ая, -ае.

**ПЯЛЁСТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* Лісток з вяночка кветак. *Пялёсткі рамонка.* ‖ *прым.* **пялёсткавы**, -ая, -ае.

**ПЯ́ЛЬЦЫ**, -аў. Рама для нацягвання тканіны, на якой вышываюць. *Сядзець за пяльцамі.*

**П'ЯНАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Злёгку п'яны. *Насупраць сядзеў п. дзядзька.*

**П'ЯНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Станавіцца п'яным. *П. ад адной чаркі. П. ад шчасця* (перан.). ‖ *зак.* **зап'яне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (разм.), **сп'яне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е *і* **ап'яне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е. ‖ *наз.* **ап'яне́нне**, -я, *н.*

**ПЯНЁК** *гл.* пень.

**ПЯНЁЧНЫ** *гл.* пень.

**П'Я́НІЦА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -ніц. Той, хто п'янствуе, алкаголік. *Непрабудны п.*

**П'ЯНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніце́, -ня́ць; *незак., каго-што.* Рабіць п'яным. *Віно п'яніць. Духмяны пах кветак п'яніў галовы. Поспехі п'яняць* (перан.). ‖ *зак.* **ап'яні́ць**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніце́, -ня́ць; -нёны.

**П'Я́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). **1.** Гулянка, дзе многа п'юць спіртных напіткаў. *Справіць п'янку.* **2.** Тое, што і *п'янства. Прагулы з-за п'янкі.*

**П'ЯНКІ́**, -а́я, -о́е. Тое, што і *п'янлівы.* ‖ *наз.* **п'я́нкасць**, -і, *ж.*

**П'ЯНЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які прыводзіць да стану ап'янення, хмельны. *П. водар.* ‖ *наз.* **п'янлі́васць**, -і, *ж.*

**П'Я́НСТВА**, -а, *н.* Пастаяннае і празмернае ўжыванне спіртных напіткаў. *Тут раней панавала невыводнае п.*

**П'Я́НСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* Займацца п'янствам.

**П'ЯНЧУ́ГА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -чу́зе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -чу́г (разм., пагард.). Тое, што і *п'яніца.* ‖ *памянш.-зніж.* **п'янчу́жка**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -жцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -жак.

**П'Я́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца ў стане ап'янення, нецвярозы. *П'янаму* (наз.) *мора па калена* (прыказка). *Што ў цвярозага на розуме, тое ў п'янага* (наз.) *на языку* (прыказка). *П. ад радасці* (перан.). **2.** Уласцівы захмялелым людзям. *П. голас.* **3.** Які прыводзіць да стану ап'янення (разм.). *П. напітак.*

**ПЯНЬКА́**, -і́, *ДМ* -ньцы́, *ж.* Прадзільнае валакно з канопляў. ‖ *прым.* **пянько́вы**, -ая, -ае. *Пяньковыя вяроўкі вельмі моцныя.*

**ПЯРВІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які з'яўляецца першым, пачатковым звяном якой-н. арганізацыі; нізавы. *Пярвічная ячэйка.*

**ПЯРМЯ́К** *гл.* пермякі.

**ПЯРМЯ́ЦКІ** *гл.* пермякі.

**ПЯРМЯ́ЧКА** *гл.* пермякі.

**ПЯРО́**[1], -а, *мн.* пёры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) пяры́, пёраў, *н.* **1.** Рагавы стрыжань з пушыстымі адросткамі па баках, які вырастае на скуры птушак. *Страусавае п. Гусінае п.* (да паяўлення металічных пёраў[2] — прылада для пісання чарнілам). **2.** Зялёны ліст цыбулі і часнаку (разм.). ‖ *памянш.* **пёрка**, -а, *мн.* -і, -рак *і* -ркаў, *н.*

**ПЯРО́**[2], -а́, *мн.* пёры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) пяры́, пёраў, *н.* Металічная выгнутая пласцінка з расшчэпленым канцом для пісання чарнілам, тушшу. *Узяцца за п.* (пачаць пісаць). *Выйсці з-пад пяра каго-н.* (быць напісаным кім-н.). *Бойкае п.* (перан.: пра лёгкі, вольны стыль). *Разбойнікі пяра* (перан.: пра прадажных, беспрынцыповых журналістаў; пагард.). ‖ *памянш.* **пёрка**, -а, *мн.* -і, -рак *і* -ркаў, *н.* ‖ *прым.* **пёравы**, -ая, -ае. *Шарыкавыя і пёравыя ручкі.*

**ПЯРСЦЁНАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Прадмет, звычайна з дарагога металу, у форме абадка, абруча, часта з каштоўнымі камянямі, які носіцца на пальцы як упрыгажэнне ці як сімвал шлюбу. *Заручальны п.*

**ПЯРУ́Н**, перуна́, *мн.* перуны́, перуно́ў, *м.* Аглушальны ўдар грому. *П. ударыў у дрэва. П. яго (цябе, яе, вас, іх) ведае* (нічога невядома пра каго-, што-н.; разм.). ‖ *прым.* **перуно́вы**, -ая, -ае.

**ПЯРХО́ТА**, -ы, *ДМ* -хо́це, *ж.* (разм.). Сухі кашаль, пакашліванне ад перасыхання, раздражнення ў горле. ‖ *прым.* **пярхо́тны**, -ая, -ае.

**ПЯРЦО́ВЫ** *гл.* перац.

**ПЯРЦО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* Гарэлка, настоеная на перцы. ‖ *прым.* **пярцо́вачны**, -ая, -ае.

**ПЯРША́К**, першаку́, *м.* (разм.). **1.** Тавар першага гатунку. **2.** Першая, самая моцная самагонка. *Хапіў першаку, дык аж вочы на лоб.* ‖ *памянш.* **першачо́к**, -чку́, *м.*

**ПЯРША́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (разм.). Тое, што і *першацёлка.*

**ПЯРШЫ́ЦЬ**, -ы́ць; *безас.; незак.* (разм.). Пра адчуванне пярхоты. *Пяршыць у горле.* ‖ *наз.* **пяршэ́нне**, -я, *н.*

**ПЯРЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́н, *ж.* Мяккая тоўстая падсцілка на ложак у выглядзе доўгага мяшка, напоўненага пер'ем або пухам. ‖ *памянш.* **пяры́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **пяры́нны**, -ая, -ае.

**ПЯРЭ́БАРЫ**, -аў (разм.). Пераезд, перасяленне. *П. на новае месца.*

**ПЯРЭ́ВАРАЦЕНЬ**, -ратня, *мн.* -ратні, -ратняў, *м.* Паводле паданняў — чалавек, здольны ператварацца ў каго-, што-н. пры дапамозе чараў.

**ПЯРЭ́ДАДЗЕНЬ**, -дня, *мн.* -дні, -дняў, *м.* Час, які папярэднічае якой-н. даце, падзеі, з'яве. *П. Новага года.*

**ПЯРЭ́ДАДНЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Тое, што і *пярэдадзень.*

**ПЯРЭДНЕ...** Першая састаўная частка складаных прыметнікаў у знач. пярэдні, напр.: *пярэднепаднябенны, пярэднеязычны.*

**ПЯРЭДНЕЯЗЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. У мовазнаўстве: які вымаўляецца пры дапамозе пярэдняй часткі языка. *Пярэднеязычныя гукі.*

**ПЯРЭ́ДНІ**, -яя, -яе. Звернуты ўперад, які знаходзіцца наперадзе. *Пярэднія лапы. П. край абароны.*

**ПЯРЭ́ДНЯЯ**, -яй, *мн.* -ія, -іх, *ж.* Нежылое, першае ад уваходу памяшканне ў кватэры; прыхожая.

**ПЯРЭ́ЗІМАК**, -мка, *мн.* -мкі, -мкаў, *м.* (разм.). Свойская жывёліна мінулагодняга прыплоду (звычайна пра цялят, жарабят).

**ПЯРЭСТАТКА́НЫ**, -ая, -ае. Вытканы з пражы рознага колеру для асновы і ўтку. *Пярэстатканая посцілка.*

**ПЯРЭ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які складаецца з рознакаляровых плям, палос, рознакаляровы. *Пярэстая тканіна.* **2.** *перан.* Неаднародны, з розных элементаў. *П. склад слухачоў.* **3.** З вялікімі плямамі, крапінамі (пра масць коней). *П. конь.* ‖ *наз.* **пярэ́стасць**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ПЯРЭ́СЦІЦЬ**[1], -э́шчу, -э́сціш, -э́сціць; *незак.* **1.** *што.* Рабіць пярэстым, надаваць пярэсты выгляд чаму-н. *Цені ад дрэў пярэсцяць поле.* **2.** звычайна *безас.* Пра адчуванне пярэстасці ў вачах. *Аж пярэсціць уваччу ад мільгання тэлеграфных слупоў.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вылучацца сваёй пя-

**РА́ЖАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Кісламалочны напітак, прыгатаваны з топленага малака, заквашанага смятанай.

**РА́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* Драўляная пасудзіна ў выглядзе цэбрыка з ручкай, прызначаная для розных гаспадарчых патрэб. ‖ *памянш.-ласк.* **ра́жачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **ра́жачны**, -ая, -ае.

**РАЖО́К**[1], -жка́, *мн.* -жкі́, -жко́ў, *м.* **1.** *мн.* ро́жкі, -жак; *гл.* рог[1]. **2.** Тое, што і *рог*[1] (у 2 знач.). **3.** Назва розных вырабаў, прадметаў у выглядзе рога[1], трубкі з расшыраным канцом. **4.** толькі *мн.* Харчовы прадукт у выглядзе коратка нарэзанай макароны. *Наварыць ражкоў.* **5.** Лапатачка для надзявання абутку. ‖ *прым.* **ражко́вы**, -ая, -ае. *Ражковае дрэва.*

**РАЖО́К**[2] *гл.* рог[2].

**РАЖО́Н**, -жна́, *мн.* -жны́, -жно́ў, *м.* (уст.). Востры кій. ◊ **Лезці на ражон** (разм., неадабр.) — брацца за што-н. заведама рызыкоўнае.

**РАЖО́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на розе[1] (у 2 знач.), на ражку. *Ансамбль ражочнікаў.*

**РАЗ**[1], -у, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Абазначэнне аднакратнага дзеяння. *Прыязджаць р. на тыдзень. Сем разоў адмерай, адзін р. адрэж* (прыказка). **2.** З'ява, выпадак у шэрагу аднародных дзеянняў, праяўленняў чаго-н. *У мінулы р. Кожны р.* **3.** *у знач. кольк. ліч.; нескл.* Адзін (пры падліку). *Р., два, тры.* ◊ **Аднаго разу** — аднойчы. **Ва ўсякім разе** — пры любых абставінах. **Другім разам** (разм.) — калі-небудзь, не цяпер. **Другі раз (іншы раз)** — часам, у некаторых выпадках. **За раз** — у адзін прыём. **Не раз (і не два)** — многа разоў. **Ні ў якім разе** — ні пры якіх умовах, ніколі. **Па той раз** — з таго часу. **Раз-два і гатова** (разм., жарт) — вельмі хутка. **Раз за разам** — зноў і зноў, беспérапынна. **Раз (і) назаўсёды** — канчаткова, беспаваротна. **Раз на раз не прыходзіцца** — не заўсёды бывае аднолькава. **У самы раз (самы раз)** (разм.) — якраз, у пару. **У такім разе** — у такім выпадку. ‖ *памянш.* **разо́к**, -зка́, *м.* (да 1 і 2 знач.) *і* **ра́зік**, -а, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**РАЗ**[2], *прысл.* (разм.). Аднойчы. *Р. уночы пачуўся гул машын.*

**РАЗ**[3], *злуч. умоўны* (разм.). Калі. *Р. не ўмееш, не бярыся.*

**РАЗ**[4], *у знач. вык.* (разм.). Абазначае хуткае і рэзкае дзеянне (стукнуў, схапіў і пад.). *Р. яго па спіне!*

**РАЗ**[1]**...(РАЗА..., РАС...)**, *дзеяслоўная прыстаўка.* Абазначае: 1) дзяленне на часткі, размеркаванне па частках, па месцах, па паверхні і пад., напр.: *разрэзаць, разарваць, раскідаць, размазаць;* 2) узмацненне, напружанне ў праяўленні дзеяння, напр.: *раскарміць, расхваліць;* 3) у спалучэнні з *-цца*: пачатак працяглага, інтэнсіўнага дзеяння, напр.: *разбурчацца, растанцавацца, разбалецца;* 4) у спалучэнні з *-цца*: напрамак руху многіх у розныя бакі, напр.: *раз'ехацца, разляцецца, рассыпацца;* 5) спыненне дзеяння, стану, напр.: *размарозіцца, разлюбіць;* 6) адваротнае дзеянне, напр.: *размініраваць, раскруціць.*

**РАЗ**[2]**...(РАС...)**, *прыстаўка прыметнікаў* (разм.). Абазначае: 1) вышэйшую ступень якой-н. якасці, напр.: *развясёлы, разудалы, распракляты;* 2) наяўнасць чаго-н., што распасціраецца ў розных кірунках, напр.: *развілісты, разгалісты, раскідзісты.*

**РАЗАБРА́ЦЦА**, -збяру́ся, -збярэ́шся, -збярэ́цца; -збяро́мся, -зберацéся, -збяру́цца; -забра́ўся, -ра́лася; -збяры́ся; *зак.* **1.** Прывесці ў парадак свае рэчы, уладкавацца (разм.). *Р. з дарогі.* **2.** *у кім-чым і* (разм.) *з кім-чым.* Унікнуўшы ў падрабязнасці, добра зразумець каго-, што-н. *Р. ў чарцяжах. Р. ў абставінах.* ‖ *незак.* **разбіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗАБРА́ЦЬ**, -збяру́, -збярэ́ш, -збярэ́; -збяро́м, -зберацé, -збяру́ць; -збяры́; -забра́ны; *зак.* **1.** *што.* Раз'яднаць, разняць што-н. на састаўныя часткі. *Р. гадзіннік. Р. старую хату.* **2.** *каго-што.* Узяць усё, раскупіць. *Р. падручнікі. Разабралі тавар.* **3.** *што.* Рассартаваць, прывесці ў парадак, размясціць у пэўным парадку. *Р. лісты. Р. дакументы.* **4.** *каго-што.* Спарадкаваць, раздзяліўшы мяса і сала і іншыя часткі. *Р. кабана.* **5.** *перан., што.* Даследуючы, высветліць, даць ацэнку чаму-н. *Р. сачыненні вучняў. Р. сказ па часцінах мовы.* **6.** *перан., што.* Распазнаць, адрозніць што-н. *Р. почырк. Р. гатунак груш на смак. Не р., што ён гаворыць.* **7.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., каго (што).* Ахапіць, апанаваць (пра пачуццё, жаданне і пад.; разм.). *Яе разабрала злосць. Дзяцей разабрала цікавасць.* **8.** Выклікаць ап'яненне (разм.). *Яго разабрала* (безас.) *пасля шклянкі гарэлкі.* ◊ **Не разбяры-бяры** (разм.) — пра што-н. вельмі заблытанае, незразумелае. **Разабраць па костачках** (разм.) — дэталёва абмеркаваць, абгаварыць каго-, што-н. **(Усю) ноч разбяруць** (разм.) — не будзе калі спаць. ‖ *незак.* **разбіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **разбо́р**, -у, *м.* (да 1—6 знач.) *і* **разбо́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 1 знач.).

**РА́ЗАВЫ**, -ая, -ае. Прыгодны на адзін раз, які робіцца толькі раз або за адзін прыём. *Р. білет. Разавая дапамога.*

**РАЗАГНА́ЦЦА**, -зганю́ся, -зго́нішся, -зго́ніцца; -загна́ўся, -загна́лася; -зганí́ся; *зак.* Давесці рух да вялікай скорасці. *Р. на машыне.* ‖ *незак.* **разганя́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **разго́н**, -у, *м.* *Узяць р. З разгону.*

**РАЗАГНА́ЦЬ**, -зганю́, -зго́ніш, -зго́ніць; -загна́ў, -загна́ла; -зганí́; -загна́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Прымусіць разысціся, разляцецца, разбегчыся ў розныя бакі. *Р. дзяцей. Р. натоўп.* **2.** Выгнаць, звольніць (усіх, многіх) адкуль-н. (разм.). *Р. гультаёў на рабоце.* **3.** Рассеяць, развеяць. *Вецер разагнаў хмары.* **4.** Прымусіць прайсці, мінуць (пра настрой, стан, пачуццё). *Р. тугу.* **5.** *каго-што.* Паскорыць ход, рух. *Р. каня. Р. лодку.* **6.** *што.* Разараць (барозны). *Р. некалькі баразён бульбы.* ‖ *незак.* **разганя́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **разго́н**, -у, *м.* (да 1, 2 і 5 знач.) *і* **разго́нка**, -і, -нцы, *ж.* (да 5 знач.).

**РАЗАГНУ́ЦЦА**, -гну́ся, -гне́шся, -гне́цца; -гнёмся, -гняцéся, -гну́цца; -нí́ся; *зак.* Выпрастацца (пра каго-, што-н. сагнутае і пад.). ‖ *незак.* **разгіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **разгіба́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗАГНУ́ЦЬ**, -гну́, -гне́ш, -гне́; -гнём, -гняцé, -гну́ць; -нí́; -гну́ты; *зак., каго-што.* Выпрастаць сагнутае. *Р. спіну. Р. падкову.* ‖ *незак.* **разгіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **разгіба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗАГРЭ́ЦЦА**, -э́юся, -э́ешся, -э́ецца; *зак.* **1.** Стаць цёплым, гарачым; нагрэцца. *Суп разагрэўся.* **2.** Адчуць цяпло ў сваім целе, сагрэцца (разм.). *Р. ў рабоце.* ‖ *незак.* **разаграва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗАГРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; -рэ́ты; *зак.* **1.** *што.* Грэючы, зрабіць цёплым, гарачым. *Р. суп.* **2.** Нагрэўшы, падрыхтаваць да дзеяння, выкарыстання. *Р. матор.* **3.** *каго-што.* Выклікаць адчуванне цяпла ў целе (разм.). *Р. сябе работай.* ‖ *незак.* **разаграва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **разаграва́нне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **разагрэ́ў**, -грэ́ву, *м.*

**РАЗАДЗЕ́ЦЦА**, -дзе́нуся, -дзе́нешся, -дзе́нецца; *зак.* (разм.). Прыгожа, шыкоўна апрануцца; убрацца, прыбрацца. *Р. на свята.* ‖ *незак.* **разадзява́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗАДЗЕ́ЦЬ**, -дзе́ну, -дзе́неш, -дзе́не; -дзе́ты; *зак., каго-што* (разм.). Прыгожа апрануць; убраць, прыбраць. *Р. дзіця.* ‖ *незак.* **разадзява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗАДЗЬМУ́ЦЦА**, -му́ся, -ме́шся, -ме́цца; -мёмся, -мяцéся, -му́цца; -мí́ся; *зак.* Тое, што і *раздзьмуцца.*

**РАЗАДЗЬМУ́ЦЬ**, -му́, -ме́ш, -ме́; -мём, -мяцé, -му́ць; -мí́; -му́ты; *зак., што.* Тое, што і *раздзьмуць. Р. у печы агеньчык.*

**РАЗАДНЕ́ЦЬ**, -е́е; *безас., зак.* Тое, што і *развіднецца.*

**РАЗАДРА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -здзярэ́цца; *зак.* (разм.). Тое, што і *разарвацца* (у 1 знач.). ‖ *незак.* **раздзіра́цца**, -а́ецца.

**РАЗАДРА́ЦЬ**, -здзяру́, -здзярэ́ш, -здзярэ́; -здзяро́м, -здзерацé, -здзяру́ць; -здзяры́; -задра́ны; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Рэзкім рухам раздзяліць на часткі; парушыць што-н. цэлае, зрабіць драным. *Р. паперу на дробныя кавалкі. Р. плашч.* **2.** *каго.* Пазбавіць жыцця (пра драпежных жывёл, птушак). *Воўк разадраў авечку.* **3.** *што.* Нанесці рану, драпіну. *Р. нагу аб дрот.* ‖ *незак.* **раздзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗА́К**, -а́, *мн.* -í́, -о́ў, *м.* (спец.). **1.** Вялікі шырокі нож. **2.** Рэжучая частка якой-н. машыны, прылады, якога-н. інструмента. **3.** Першабытная каменная сякера.

**РА́ЗАМ**, *прысл.* **1.** Сумесна з кім-, чым-н. *Працаваць р. Ходзяць р. боль і радасць.* **2.** Адначасова (разм.). *Паляцелі птушкі, а р. з імі і цёплае лета.* **3.** У адзін прыём. *Прачытаць усё р.* **4.** Усяго (пра агульную суму

чаго-н.). *Р. 150 рублёў.* ◊ **Разам з гэтым** — у той жа час, адначасова.

**РАЗАМКНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -нёцца; -нёмся, -няцёся, -нуцца; *зак.* Раз'ядноцца (пра самкнутае). *Ланцуг разамкнуўся.* ‖ *незак.* **размыка́цца**, -áецца. ‖ *наз.* **размыка́нне**, -я, *н.*

**РАЗАМКНУ́ЦЬ**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што.* Раз'ядноць (што-н. самкнутае). *Р. ланцуг. Р. рукі.* ‖ *незак.* **размыка́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **размыка́нне**, -я, *н.*

**РАЗАМЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Вялы, расслаблены. *Разамлелае ад спёкі цела.* ‖ *наз.* **разамле́ласць**, -і, *ж.*

**РАЗАМЛЕ́ЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* (разм.). Стаць вялым, расслабіцца. *Р. ад гарачыні.*

**РАЗАНУ́ЦЬ** *гл.* рэзаць.

**РАЗАПРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які разапрэў; распараны. *Р. гарох.*

**РАЗАПРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прэючы, размякнуць, разбухнуць. *Каша разапрэла.* **2.** Моцна спацець, распарыцца (разм.). *Р. пасля лазні.* ‖ *незак.* **разаправа́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**РАЗАПХА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Пхаючы, размясціць па розных месцах, парассоўваць. *Р. рэчы па паліцах.* **2.** *што.* Набіваючы чым-н., прымусіць раздацца; разбіць. *Р. яблыкі па кішэнях.* ‖ *незак.* **распі́хваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **распіха́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**РАЗАПХНУ́ЦЬ**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што* (разм.). Піхнуўшы, прымусіць даць дарогу, прыбраць з дарогі. *Р. людзей.* ‖ *незак.* **распі́хваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **распіха́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**РАЗАРА́ЦЬ**[1], -ару́, -арэ́ш, -арэ́; -арóм, -арацé, -ару́ць; -ары́; -ара́ны; *зак., што.* Аручы, раскінуць (зямлю плугам.). *Р. некалькі баразён бульбы.* ‖ *незак.* **разво́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗАРА́ЦЬ**[2] *гл.* разарыць.

**РАЗАРВА́ЦЦА**, -ву́ся, -вéшся, -вéцца; -вёмся, -вяцéся, -ву́цца; -ві́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раздзяліцца на часткі ад рэзкага руху або ад старасці; парвацца. *Вяроўка разарвалася. Кашуля разарвалася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Узарвацца знутры, распасціся на часткі. *Снарад разарваўся.* **3.** *перан.* Пра неабходнасць адразу выканаць многа спраў, паспець усюды (разм.). *Я на ўсё не разарвуся.* ‖ *незак.* **разрыва́цца**, -áюся, -áешся, -áецца (да 2 і 3 знач.). ◊ **Душа (сэрца) разрываецца** — пра пачуццё вострай жаласці, шкадавання. **Хоць разарвіся!** — ужыв. пры ўказанні на незвычайна вялікую занятасць, неабходнасць быць адразу ў некалькіх месцах. ‖ *наз.* **разры́ў**, -рыву, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**РАЗАРВА́ЦЬ**, -ву́, -вéш, -вé; -вём, -вяцé, -ву́ць; -ві́; -ва́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Рэзкім рухам раздзяліць на часткі, парушыць цэласць чаго-н.; разадраць. *Р. ліст паперы. Р. сукенку.* **2.** *што.* Узарваць знутры, разнесці на часткі, асколкі. *Трубы разарвала* (безас.). **3.** *перан., што.* Спыніць, парваць (адносіны, сувязь і пад.). *Р. дыпламатычныя зносіны. Р. сувязі з сябрамі.* ‖ *незак.* **разрыва́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **разры́ў**, -рыву, *м.*

**РАЗАРЫ́ЦЦА**, -зару́ся, -зóрышся *і* -зары́шся, -зóрыцца *і* -зары́цца; -зóрымся *і* -зары́мся, -зóрыцеся *і* -зарыцéся, -зóрацца *і* -зара́цца; *зак.* **1.** Страціць маёмасць, багацце; збяднець. **2.** Патраціць на што-н. грошы (разм.). *Р. на кнігі.* ‖ *незак.* **разара́цца**, -áюся, -áешся, -áецца. ‖ *наз.* **разарэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗАРЫ́ЦЬ**, -зару́, -зóрыш *і* -зары́ш, -зóрыць *і* -зары́ць; -зóрым *і* -зары́м, -зóрыце *і* -зарыцé, -зóрац *і* -зара́ць; -зарóны; *зак., каго-што.* Давесці да беднасці, галечы; пазбавіць дастатку, багацця. *Р. сям'ю.* ‖ *незак.* **разара́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **разарэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗАСЛА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., расцéлецца; *зак.* Сцелючыся па паверхні чаго-н., распаўсюдзіцца. *Разаслаўся па сенажаці туман.* ‖ *незак.* **рассціла́цца**, -áецца.

**РАЗАСЛА́ЦЬ**[1], -зашлю́, -зашлéш, -зашлé; -зашлём, -зашляцé, -зашлю́ць; -зашлі́; -засла́ны; *зак., каго-што.* Паслаць, адправіць у розныя месцы. *Р. ганцоў. Р. пісьмы.* ‖ *незак.* **рассыла́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **рассыла́нне**, -я, *н.* *і* **рассы́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* ‖ *прым.* **рассы́лачны**, -ая, -ае.

**РАЗАСЛА́ЦЬ**[2], рассцялю́, рассцéлеш, рассцéле; рассцялі́; разасла́ны; *зак., што.* Разгарнуўшы поўнасцю, паслаць па паверхні чаго-н. *Р. новы абрус. Р. дыван.* ‖ *незак.* **рассціла́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **рассціла́нне**, -я, *н.*, **рассці́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* *і* **рассці́л**, -у, *м.* (спец.). ‖ *прым.* **рассці́лачны**, -ая, -ае (спец.).

**РАЗАСПА́ЦЦА**, -плю́ся, -пі́шся, -пі́цца; -пі́мся, -піцéся, -пя́цца; -пі́ся; *зак.* (разм.). Праспаць даўжэй звычайнага, заснуць надоўга. *Дзіця разаспалася, не хоча ўставаць.*

**РАЗАССА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -сéцца; *зак.* Пра пухліны, нарасці: апасці, знікнуць. ‖ *незак.* **рассыса́цца**, -áецца.

**РАЗАССА́ЦЬ**, -ссу́, -ссéш, -ссé; -ссём, -ссяцé, -ссу́ць; -ссі́; -сса́ны; *зак., што.* Прымусіць разассацца. *Кампрэсамі р. зацвярдзенне.* ‖ *незак.* **рассыса́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**РАЗАСЯРО́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* Раздзяліўшыся на драбнейшыя групы, размеркавацца асобна адзін ад аднаго, у некалькіх месцах. *Войска разасяродзілася на вялікай плошчы.* ‖ *незак.* **разасяро́джвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **разасяро́джванне**, -я, *н.*

**РАЗАСЯРО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што.* Раздзяліўшы на драбнейшыя групы, размеркаваць кожную з іх асобна, у некалькіх месцах. *Р. войска. Р. аб'екты.* ‖ *незак.* **разасяро́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗАХВО́ЦІЦЦА**, -óчуся, -óцішся, -óціцца; *зак.* (разм.). **1.** Адчуць жаданне, ахвоту да чаго-н. **2.** Страціць жаданне, ахвоту да чаго-н. *Нешта ён разахвоціўся, не пайшоў па грыбы.* ‖ *незак.* **разахво́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗАХВО́ЦІЦЬ**, -óчу, -óціш, -óціць; -óчаны; *зак., каго (што)* (разм.). **1.** Абудзіць у кім-н. жаданне, ахвоту рабіць што-н. **2.** Прымусіць страціць жаданне, ахвоту рабіць што-н. *Р. ісці ў кіно.* ‖ *незак.* **разахво́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗА́ХКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пачаць многа і доўга ахкаць.

**РАЗАЧХА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* (разм.). Пачаць многа і доўга чхаць.

**РАЗБА́ВІЦЬ**, -áўлю, -áвіш, -áвіць; -áўлены; *зак., што.* Дадаўшы вады або іншай вадкасці, зрабіць менш насычаным, радзейшым. *Р. спірт вадой.* ‖ *незак.* **разбаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **разба́ўка**, -і, *ДМ* -баўцы, *ж.*

**РАЗБАГАЦЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які разбагацеў, стаў багатым. *Р. прадпрымальнік.*

**РАЗБАГАЦЕ́ЦЬ** *гл.* багацець.

**РАЗБАЗА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго-што* (разм., неадабр.). Легкадумна, не па-гаспадарску распрадаць, раздаць, растраціць. *Р. маёмасць.* ‖ *незак.* **разбаза́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗБАЛАБО́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што* (разм.). Разнесці чуткі, пагалоскі і пад.; раззваніць, разбалбатаць. *Р. чуткі на ўсю вёску.* ‖ *незак.* **разбалабо́ньваць**, -аю, -ае, -ае.

**РАЗБА́ЛАВАЦЦА**, -луюся, -луешся, -луецца; -луйся; *зак.* (разм.). Стаць балаўніком, раздурэць.

**РАЗБА́ЛАВАЦЬ**, -лую, -луеш, -луе; -луй; -лаваны; *зак., каго (што).* Надта распесціць, зрабіць непаслухмяным, капрызным. *Р. дзіця.*

**РАЗБАЛБАТА́ЦЦА**, -балбачу́ся, -балбóчашся, -балбóчацца; -балбачы́ся; *зак.* (разм.). Пачаўшы балбатаць, захапіцца размовамі.

**РАЗБАЛБАТА́ЦЬ**, -лбачу́, -лбóчаш, -лбóча; -лбачы́; -лбата́ны; *зак., што* (разм.). Расказаць каму-н. тое, пра што нельга, не варта было гаварыць. *Р. сакрэт.*

**РАЗБАЛЕ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ліцца; *зак.* Пачаць моцна балець. *Зуб разбалеўся.* ‖ *незак.* **разбо́львацца**, -аецца.

**РАЗБАМБІ́ЦЬ**, -бамблю́, -бамбі́ш, -бамбі́ць; -бамбі́м, -бамбіцé, -бамбя́ць; -бо́мблены; *зак., каго-што.* Разбіць, разбурыць бамбёжкай.

**РАЗБАРАНІ́ЦЬ**, -раню́, -рóніш, -рóніць; -рóнены; *зак., каго (што).* Разняць, развесці (тых, хто пачаў біцца). *Р. задзір.* ‖ *незак.* **разбараня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**РАЗБАРСА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *зак.* (разм.). Развязацца (пра аборы і пад.). ‖ *незак.* **разбо́рсвацца**, -аецца.

**РАЗБАРСА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што* (разм.). Выцягнуць абору (з

лапця). *Хлопец сеў, разбарсаў лапці.* ‖ *незак.* **разбо́рсваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗБЕ́ГЧЫСЯ**, -бягу́ся, -бяжы́шся, -бяжы́цца; -бяжы́мся, -бежыце́ся, -бягу́цца; -бе́гся, -бе́глася; -бяжы́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра многіх: бягом накіравацца ў розныя бакі. *Дзеці з шумам разбегліся.* **2.** Прабегчы некаторую адлегласць, каб падрыхтавацца да скачка, пад'ёму і пад. *Разбегся і скочыў. Перад скачком трэба добра р.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Пра думкі: страціць здольнасць сканцэнтравацца на чым-н. ◊ **Вочы разбегліся** *у каго* (разм.) — не ведае, што выбраць, на чым спыніцца. ‖ *незак.* **разбяга́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **разбе́г**, -у, *м.* і **разбе́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* (да 2 знач.). *Разбег самалёта* (даўжыня прабегу па зямлі да моманту ўзлёту). *Разбежка перад скачком.* ◊ **З разбегу** — а) набраўшы скорасць, разбегшыся; б) не змогшы спыніцца пасля бегу.

**РАЗБЕ́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* (разм.). **1.** *гл.* разбегчыся. **2.** Размінка бегам перад спартыўнымі выступленнямі. **3.** Разыходжанне, несупадзенне ў чым-н.; супярэчнасць. *Р. ў два міліметры.*

**РАЗБЕ́ЖНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Тое, што і *разбежка. Можна было заўважыць разбежнасці з планам.*

**РАЗБІНТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *зак.* **1.** Зняць з сябе бінт. *Ранены разбінтаваўся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разматацца, развязацца (пра бінт, павязку і пад.). **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вызваліцца ад бінту, павязкі і пад. (разм.). *Палец разбінтаваўся.* ‖ *незак.* **разбінто́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗБІНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., каго-што.* Размотваючы, зняць бінт з каго-, чаго-н. *Р. нагу.* ‖ *незак.* **разбінто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗБІРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* разабрацца. **2.** Разнімацца на часткі, быць разборным. **3.** Быць добра дасведчаным, адукаваным у якой-н. галіне. *Р. ў музыцы.*

**РАЗБІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* разабраць. **2.** *каго-што.* Выбіраючы, разборліва разглядаць. *Ісці, не разбіраючы дарогі.* **3.** *каго-што.* Крытычна абмяркоўваць (паводзіны, чые-н. учынкі; разм.). *На сходзе разбіралі парушальнікаў дысцыпліны.*

**РАЗБІТНЫ́**, -а́я, -о́е (разм.). Бойкі, праворны, лоўкі. *Мой сябар — р. хлопец.*

**РАЗБІ́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). Які страціў бадзёрасць, бяссільны, стомлены. *Адчуваць сябе разбітым.* ‖ *наз.* **разбі́тасць**, -і, *ж.*

**РАЗБІ́ЦЦА**, разаб'ю́ся, разаб'е́шся, разаб'е́цца; разаб'ёмся, разаб'яце́ся, разаб'ю́цца; разбі́ся; *зак.* **1.** Раскалоцца ад удару, трэснуць, распасціся на часткі. *Шклянка разбілася. Самалёт разбіўся.* **2.** *перан.* Расстроіцца, разбурыцца. *Разбіліся планы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раздзяліцца на часткі, групы. *Р. на атрады.* **4.** Пашкодзіць, разбіць сабе да крыві частку цела пры падзенні, удары або забіцца насмерць. *Р. насмерць.* ‖ *незак.* **разбіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗБІ́ЦЬ**, разаб'ю́, разаб'е́ш, разаб'е́; разаб'ём, разаб'яце́, разаб'ю́ць; разбі́ў, -бі́ла; разбі́; разбі́ты; *зак.* **1.** *гл.* біць. **2.** Пашкодзіць ударам, параніць. *Р. галаву.* **3.** *перан.* Загубіць, разбурыць. *Р. мары і надзеі. Р. чужое шчасце.* **4.** *каго-што.* Раздзяліць на часткі, на групы; размеркаваць. *Р. лес на ўчасткі. Р. атрад на групы.* **5.** *каго-што.* Перамагчы, нанесці паражэнне. *Р. ворага.* **6.** *перан.* Даказаць памылковасць, беспадстаўнасць, неабгрунтаванасць каго-, чаго-н. *Р. праціўнікаў новай ідэі.* **7.** Паставіць, раскінуць (палатку і пад.). *Р. лагер.* **8.** Распланаваўшы, пасадзіць што-н. *Р. парк.* **9.** *што.* Растрэсці, разварушыць, раскінуць. *Р. сена. Р. гной на полі.* ‖ *незак.* **разбіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **разбіва́нне**, -я, *н.* і **разбі́ўка**, -і, *ДМ* -біўцы, *ж.* (да 4, 7—9 знач.).

**РАЗБЛЫ́ТАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* **1.** Раздзяліцца, разматацца. *Вузлы нарэшце разблыталіся. Вяроўка з цяжкасцю разблыталася.* **2.** *перан.* Стаць ясным, зразумелым (разм.). *Клубок заблытаных спраў лёгка разблытаўся.* ‖ *незак.* **разблы́твацца**, -аецца.

**РАЗБЛЫ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Раздзяліць, разматаць (зблытанае). *Р. валасы.* **2.** *перан.* Зрабіць ясным, зразумелым што-н., дабрацца да сутнасці чаго-н. *Р. складанае пытанне.* ‖ *незак.* **разблы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗБО́Й**, -ю, *м.* Узброены напад з мэтай абрабавання, забойства. *Марскі р.* ‖ *прым.* **разбо́йны**, -ая, -ае.

**РАЗБО́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які займаецца разбоем; грабежнік. **2.** Свавольнік, балаўнік, нягоднік (звычайна ў звароце; разм., жарт.). *Ах, р., што ты робіш!* ‖ *ж.* **разбо́йніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **разбо́йніцкі**, -ая, -ае (да 1 знач.) і **разбо́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**РАЗБО́ЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Займацца разбоем, быць разбойнікам (у 1 знач.).

**РАЗБО́ЛЬВАЦЦА** *гл.* разбалецца.

**РАЗБО́Р**, -у, *м.* **1.** *гл.* разабраць. **2.** Адбор, выбар (разм.). *Высякалі лес без разбору. Крытыкаваць ты крытыкуй, але з разборам.* **3.** Разгляд судовай справы. *Судовы р.* ◊ **На (пад) шапачны разбор; на разбор шапак** (паспець, з'явіцца, прыйсці; разм.) — пад канец, калі ўсе разыходзяцца, усё скончылася.

**РАЗБО́РКА** *гл.* разабраць.

**РАЗБО́РЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Строгі ў выбары, патрабавальны. *Р. тэлеглядач.* **2.** Які лёгка разабраць, успрыняць на слых і пад.; выразны. *Р. почырк. Напісаць разборліва* (прысл.). ‖ *наз.* **разбо́рлівасць**, -і, *ж.*

**РАЗБО́РНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна разабраць і зноў сабраць, які паддаецца разборцы. *Р. домік. Разборная кніжная паліца.*

**РАЗБО́ЎТАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* **1.** Размяшацца ад узбоўтвання. *Яйкі з малаком добра разбоўталіся.* **2.** Боўтаючыся, разліцца. *Малако разбоўталася.* ‖ *незак.* **разбо́ўтвацца**, -аецца.

**РАЗБО́ЎТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). **1.** Размяшаць, боўтаючы. *Р. фарбу.* **2.** Боўтаючы, разліць. *Р. малако.* ‖ *незак.* **разбо́ўтваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗБРАКА́ЦЬ** *гл.* разбракнуць.

**РАЗБРА́КЛЫ**, -ая, -ае. Які разбрак, разбух ад вільгаці. ‖ *наз.* **разбра́класць**, -і, *ж.*

**РАЗБРА́КНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -бра́к, -кла; *зак.* Разбухнуць ад вільгаці, размокнуць, размякнуць. *Дзверы разбраклі.* ‖ *незак.* **разбрака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗБРАНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак., каго-што.* Вызваліць ад броні, зняць броню з каго-н. *Р. спецыяліста.*

**РАЗБРАХА́ЦЦА**, -брэ́шацца; -брашы́ся; *зак.* (разм.). Пачаць доўга і моцна брахаць. *Нешта ўночы разбрахаліся сабакі.*

**РАЗБРАХА́ЦЬ**, -брашу́, -брэ́шаш, -брэ́ша; -брашы́; -браха́ны; *зак., што* (разм., неадабр.). Расказаць усім які-н. сакрэт; раззваніць, разбалбатаць.

**РАЗБРО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Разлад, разнагалоссе, адсутнасць згоды ў чым-н. *У калектыве поўны р. Ідэйны р.*

**РАЗБРЫСЦІ́СЯ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -брыдзе́цца; -брыдзёмся, -брыдзяце́ся, -брыду́цца; -брыўся, -брыла́ся, -ло́ся; *зак.* Разысціся з аднаго месца ў розныя бакі. *Р. па хатах. Статак разбрыўся.* ‖ *незак.* **разбрыда́цца**, -а́ецца.

**РАЗБУБНІ́ЦЦА**, -ню́ся, -ні́шся, -ні́цца; -ні́мся, -ніце́ся, -ня́цца; *зак.* (разм.). Пачаць доўга і моцна бубніць. *Нешта дзед разбубніўся.*

**РАЗБУДАВА́ЦЦА**, -ду́юся, -ду́ешся, -ду́ецца; -ду́йся; *зак.* (разм.). Будуючыся, вырасці, пашырыць сваю плошчу; абзавесціся новымі будынкамі. *Горад разбудаваўся.* ‖ *незак.* **разбудо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗБУДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак., што* (разм.). Будуючы, расшырыць плошчу. *Р. пасёлак.* ‖ *незак.* **разбудо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗБУДЗІ́ЦЬ** *гл.* будзіць.

**РАЗБУЙНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ні́цца; *зак.* Стаць менш буйным, раздзяліцца на менш буйныя адзінкі. *Гаспадарка разбуйнілася.* ‖ *незак.* **разбуйня́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **разбуйне́нне**, -я, *н.*

**РАЗБУЙНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніце́, -ня́ць; -бу́йнены; *зак., што.* Зрабіць менш буйным, раздзяліць на менш буйныя адзінкі. *Р. раён. Р. вялікую гаспадарку.* ‖ *незак.* **разбуйня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **разбуйне́нне**, -я, *н.*

**РАЗБУРА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто разбурае што-н. *Вораг-р. Р. культуры.* ‖ *ж.* **разбура́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **разбура́льніцкі**, -ая, -ае.

**РАЗБУРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які прыносіць разбурэнне. *Разбуральная вайна.* ‖ *наз.* **разбура́льнасць**, -і, *ж.*

**РАЗБУРЧА́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца; -чы́ся; *зак.* (разм.). Пачаць моцна і доўга бурчаць.

**РАЗБУРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -бу́рыцца; *зак.* **1.** Разваліцца, зламацца. *Старая хата разбурылася.* **2.** *перан.* Парушыцца, разладзіцца. *Планы мае разбурыліся.* ‖ *незак.* **разбу́рвацца**, -аецца *і* **разбура́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **разбу́рванне**, -я, *н. і* **разбурэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗБУРЫ́ЦЬ**, -буру́, -бу́рыш, -бу́рыць; -бу́раны; *зак., што.* **1.** Б'ючы, ламаючы, знішчыць, ператварыць у руіны. *Р. дом. Р. мост.* **2.** *перан.* Парушыць, разладзіць, знішчыць. *Р. планы непрыяцеля. Р. сям'ю.* ‖ *незак.* **разбу́рваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **разбура́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **разбу́рванне**, -я, *н. і* **разбурэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗБУ́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які павялічыўся ў аб'ёме, набраўшыся вільгаці. *Р. гарох.* **2.** *перан.* Непамерна павялічаны; раздуты. *Разбухлыя штаты.* ‖ *наз.* **разбу́хласць**, -і, *ж.*

**РАЗБУ́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; -бу́х, -хла; *зак.* **1.** Набухнуць, раздацца, патаўсцець ад вільгаці. *Боты намоклі, разбухлі. Пупышкі на дрэве разбухлі.* **2.** *перан.* Непамерна павялічыцца, разрасціся. *Штаты разбухлі. Папка з дакументамі разбухла.* ‖ *незак.* **разбуха́ць**, -а́е.

**РАЗБУШАВА́ЦЦА**, -шу́юся, -шу́ешся, -шу́ецца; -шу́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць моцна бушаваць; стаць бурным (пра стыхійныя з'явы). *Разбушавалася непагода.* **2.** *перан.* Пачаць моцна шумець, буяніць (разм.). *Разбушаваўся бацька.*

**РАЗБУЯ́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* (разм.). Пачаць моцна буяніць.

**РАЗБЫ́ЦЦА**, -бу́дуся, -бу́дзешся, -бу́дзецца; -бу́дзься; *зак.* (разм.). Распаўнець, раздацца. *Патаўсцець, р. з гадамі.* ‖ *незак.* **разбыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗБЭ́РСАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). **1.** Разблытаць, раскідаць. *Р. ніткі. Р. валасы.* **2.** Тое, што і *разбарсаць. Р. аборы.* ‖ *незак.* **разбэ́рсваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗБЭ́РСВАЦЦА** *гл.* разбарсацца.

**РАЗБЭ́РСВАЦЬ** *гл.* разбарсаць, разбэрсаць.

**РАЗБЭ́СЦІЦЦА**, -бэ́шчуся, -бэ́сцішся, -бэ́сціцца; *зак.* **1.** Маральна распусціцца, прывучыцца да дрэнных звычак. **2.** Стаць непаслухмяным, разбалавацца, раздурэць. *Дзеці зусім разбэсціліся.* ‖ *незак.* **разбэ́шчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **разбэ́шчванне**, -я, *н.*

**РАЗБЭ́СЦІЦЬ**, -бэ́шчу, -бэ́сціш, -бэ́сціць; -бэ́шчаны; *зак., каго (што).* **1.** Маральна распусціць, прывучыць да дрэнных звычак. **2.** Разбалаваць, раздурыць. *Р. дзіця.* ‖ *незак.* **разбэ́шчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разбэ́шчванне**, -я, *н.*

**РАЗБЭ́ШЧАНЫ**, -ая, -ае. **1.** З дрэннымі, амаральнымі звычкамі. **2.** Разбалаваны, непаслухмяны. *Разбэшчаныя дзеці.* ‖ *наз.* **разбэ́шчанасць**, -і, *ж.*

**РАЗБЭ́ШЧВАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто разбэшчвае. ‖ *ж.* **разбэ́шчвальніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**РАЗБЯГА́ЦЦА** *гл.* разбегчыся.

**РАЗВАДЗЯ́ШЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Ваеннаслужачы, які расстаўляе вартавых на пасты. *Назначыць разводзячага.*

**РАЗВАДНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які прызначаны, служыць для разводкі (у 2 знач.). *Р. ключ* (для пілы). **2.** Такі, які можна развесці[1] (у 4 знач.). *Р. мост.*

**РАЗВАЖА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Вывад, рад думак, выкладзеных у лагічна паслядоўнай форме. **2.** звычайна *мн.* Выказванні, абмеркаванні, размовы. *Многа часу траціцца на разважанні.* ◊ **Без разважання** (разм.) — адразу, доўга не думаючы.

**РАЗВАЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Мысліць, рабіць вывады. *Умець р.* **2.** Паслядоўна выкладаць свае думкі наконт чаго-н.; весці гутарку. *Р. аб ролі мастацтва.*

**РАЗВА́ЖЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які любіць падумаць, разважыць. *Старэйшы брат больш р.* **2.** Які выяўляе развагу, здольнасць разважаць. *Гаворка ў яго разважлівая.* ‖ *наз.* **разва́жлівасць**, -і, *ж.*

**РАЗВА́ЖНІЧАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пачаць паводзіць сябе занадта важна, стаць не ў меру важным.

**РАЗВА́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Якому ўласціва развага, роздум; разважлівы. *Дзядзька — чалавек р.: спачатку падумае, а потым скажа.* **2.** Які змяшчае ў сабе павучанне, параду і пад. *Разважное слова.* **3.** Спакойны, паважны, размераны. *Ісці разважным крокам.* ‖ *наз.* **разва́жнасць**, -і, *ж.*

**РАЗВАЖНЫ́**, -а́я, -о́е. Такі, які прадаецца на вагу. *Разважное масла.*

**РАЗВА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* Раздзяліць на часткі пры дапамозе вагаў. *Р. муку. Р. цукар.* ‖ *незак.* **разва́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗВАЗНЫ́** *гл.* развезці[1].

**РАЗВА́Л**, -у, *м.* Поўны разлад, разруха, беспарадак. *Р. у гаспадарцы.*

**РАЗВАЛАЧЫ́**, -лаку́, -лачэ́ш, -лачэ́; -лачо́м, -лачаце́, -лаку́ць; -ло́к, -лакла́, -ло́; -лачы́; -ло́чаны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Расцягнуць па частках у розныя бакі. *Р. бярвенне.* **2.** Раскрасці. *Р. дабро.* ‖ *незак.* **развалака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **развала́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗВАЛАЧЫ́ЦЦА**, -лачу́ся, -ло́чышся, -ло́чыцца; *зак.* (разм.). Пачаць часта і доўга валачыцца, хадзіць усюды. *Развалачыўся хлопец, кожную ноч недзе цягаецца.*

**РАЗВА́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* **1.** *мн.* Рэшткі разбуранай пабудовы ці паселішча, руіны. *Развалiны горада.* **2.** *перан.* Пра старога або разбітага хваробай чалавека (разм.). *Ён нагадваў жывую развалiну.*

**РАЗВА́ЛІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). З пахістваннем з боку на бок. *Ісці развалістай паходкай.* ‖ *наз.* **разва́лістасць**, -і, *ж.*

**РАЗВАЛІ́ЦЦА**, -валю́ся, -ва́лішся, -ва́ліцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паваліўшыся, рассыпацца, распасціся. *Бабка снапоў развалілася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). *перан.* Прыйсці ў заняпад; разладзіцца. *Справа развалілася.* **3.** Сесці, неакуратна, шырока раскінуўшы рукі і ногі (разм.). *Р. на канапе.* ‖ *незак.* **разва́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗВАЛІ́ЦЬ**, -валю́, -ва́ліш, -ва́ліць; -ва́лены; *зак., што.* **1.** Разбураючы, паваліць, раскідаць. *Р. будыніну.* **2.** Прывесці ў стан развалу, у заняпад. ‖ *незак.* **разва́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗВА́ЛКІ**, -лак. Нізкія і шырокія сані з разваламі.

**РАЗВА́ЛЫ**, -аў. **1.** Рама з трох жэрдак, якая кладзецца на сані для большай умяшчальнасці. *Сані з разваламі.* **2.** Нізкія і шырокія сані з такой рамай. *Дзед вёз сена на развалах.*

**РАЗВАЛЮ́ХА**, -і, *ДМ* -лю́се, *мн.* -і, -лю́х, *ж.* (разм.). Пра што-н. старое, якое вось-вось разваліцца. *Не хата, а р. Хопіць ездзіць на машыне-развалюсе.* ‖ *памянш.* **развалю́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак.

**РАЗВАРНЫ́**, -а́я, -о́е. Які добра разварваецца, рассыпчаты ў вараным выглядзе. *Разварная бульба.*

**РАЗВАРО́Т** *гл.* развярнуцца, развярнуць.

**РАЗВАРО́ЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Варочаючы, раскідаць, разбурыць (што-н. складзенае, пабудаванае); развярнуць (у 1 і 2 знач.). *Р. стары будынак.* ‖ *незак.* **развaро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗВАРО́ЧВАННЕ** *гл.* развярнуць.

**РАЗВАРО́ЧВАЦЦА** *гл.* развярнуцца.

**РАЗВАРО́ЧВАЦЬ** *гл.* развярнуць, разварочаць.

**РАЗВАРУШЫ́ЦЦА**, -рушу́ся, -ру́шышся, -ру́шыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць варушыцца, рухацца. *Мурашкі разварушыліся.* **2.** *перан.* Пачаць актыўна дзейнічаць. ‖ *незак.* **развару́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗВАРУШЫ́ЦЬ** *гл.* варушыць.

**РАЗВА́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Які добра разварваецца. *Разварыстая бульба.* ‖ *наз.* **разва́рыстасць**, -і, *ж.*

**РАЗВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ва́рыцца; *зак.* Варачыся, стаць зусім мяккім або занадта мяккім. *Фасоля надта разварылася.* ‖ *незак.* **разва́рвацца**, -аецца.

**РАЗВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -ва́рыш, -ва́рыць; -ва́раны; *зак., што.* Давесці варкай да мяккасці або залішняй мяккасці. *Р. гарох.* ‖ *незак.* **разва́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗВАР'Я́ВАНЫ**, -ая, -ае. Які развар'яваўся; раз'юшаны. *Р. натоўп.* ‖ *наз.* **развар'я́ванасць**, -і, *ж.*

**РАЗВАР'Я́ВАЦЦА** *гл.* вар'явацца.

**РАЗВАЯВА́ЦЦА**, -ваю́ся, -ваю́ешся, -ваю́ецца; -ваю́йся; *зак.* (разм., жарт.).

Увайшоўшы ў азарт, пачаць шумна паводзіць сябе, буяніць.

**РАЗВЕД...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да разведкі (у 1 знач.), напр., *разведпошук*; 2) які мае адносіны да разведкі (у 2 знач.), напр.: *разведгрупа, разведдазор, разведузвод*; 3) які мае адносіны да разведкі (у 4 знач.), напр.: *разведслужба, разведцэнтр, разведшкола*.

**РАЗВЕ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што, аб кім-чым.* Даведацца, дазнацца (разм.). *Р. планы.* **2.** *што.* Правесці, зрабіць разведку (у 1 і 2 знач.) чаго-н. *Р. размяшчэнне праціўніка. Р. запасы нафты.* ‖ *незак.* **разве́дваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **разве́дванне**, -я, *н.*; *прым.* **разве́двальны**, -ая, -ае (паводле 2 знач.).

**РАЗВЕ́ДВАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Той, хто займаецца разведваннем нетраў. *Інжынер-р.* ‖ *прым.* **разве́двальніцкі**, -ая, -ае. *Разведвальніцкая партыя геолагаў.*

**РАЗВЕ́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Абследаванне чаго-н. са спецыяльнай мэтай. *Р. карысных выкапняў.* **2.** Дзеянні вайсковых груп, дазораў і пад. для атрымання звестак аб праціўніку і мясцовасці, якую ён займае. *У разведку пайшлі добраахвотнікі. Паветраная р.* **3.** Вайсковая група, падраздзяленне і пад., якія збіраюць звесткі аб праціўніку. *Камандзір разведкі.* **4.** Здабыванне звестак аб эканамічным, палітычным становішчы іншых дзяржаў, іх ваенным патэнцыяле; арганізацыя, група асоб, занятая здабываннем такіх звестак. ‖ *прым.* **разве́дачны**, -ая, -ае.

**РАЗВЕ́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Ваеннаслужачы або работнік разведкі (у 3 і 4 знач.). **2.** Спецыяліст па разведцы нетраў, карысных выкапняў. **3.** Самалёт або карабель, што вядзе разведку (у 1 і 2 знач.). ‖ *ж.* **разве́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц (да 1 знач.). ‖ *прым.* **разве́дчыцкі**, -ая, -ае.

**РАЗВЕ́ЗЦІ**[1], -вязу́, -вязе́ш, -вязе́; -вязё́м, -везяце́, -вязу́ць; -вёз, -ве́зла; -вязі́; -ве́зены; *зак., каго-што.* Везучы многае (многіх), даставіць у розныя месцы. *Р. пошту. Р. гасцей.* ‖ *незак.* **разво́зіць**, -во́жу, -во́зіш, -во́зіць; *наз.* **разво́з**, -у, *м.* *і* **разво́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* ‖ *прым.* **развазны́**, -а́я, -о́е.

**РАЗВЕ́ЗЦІ**[2], -вязу́, -вязе́ш, -вязе́; -вязё́м, -везяце́, -вязу́ць; -вёз, -ве́зла; -вязі́; -ве́зены; *зак.* (разм.). **1.** *безас., каго (што).* Прывесці ў стан знямогі. *Ад духаты яго развезла.* **2.** *безас., што.* Пра дарогу: зрабіць цяжкапраходнай, малапрыдатнай для язды. *Дарогу развезла, не праехаць.* ‖ *незак.* **разво́зіць**, -во́жу, -во́зіш, -во́зіць.

**РАЗВЕ́ЙВАЦЦА** *гл.* развеяцца.

**РАЗВЕ́ЙВАЦЬ** *гл.* развеяць.

**РАЗВЕ́НЧВАЦЬ** *гл.* развянчаць.

**РАЗВЕРАДЗІ́ЦЬ** *гл.* верадзіць.

**РАЗВЕ́СІСТЫ**, -ая, -ае. З шырока раскінутымі навіслымі галінамі. *Развесістая бяроза.* ‖ *наз.* **разве́сістасць**, -і, *ж.*

**РАЗВЕ́СІЦЬ**, -ве́шу, -ве́сіш, -ве́сіць; -ве́шаны; *зак., што.* **1.** Павесіць у розных месцах, развешаць (разм.). *Р. сушыць бялізну.* **2.** Шырока, у розныя бакі раскінуць (галіны). *Клён развесіў сваё голле.* ◊ **Развесіць вушы** (разм., іран.) — слухаць што-н. з цікавасцю і даверлівасцю. **Развесіць губы** (разм., іран.) — быць пасіўным, безуважным. ‖ *незак.* **разве́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗВЕ́СЦІ**[1], -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзё́м, -ведзяце́, -вяду́ць; -вё́ў, -вяла́; -ло́; -вядзі́; -ве́дзены; *зак.* **1.** *каго (што).* Ведучы, даставіць (многіх) у розныя месцы. *Р. вартавых.* **2.** *перан.* Разлучыць каго-н., аддаліць аднаго ад другога. *Лёс навекі нас развёў.* **3.** *каго (што).* Скасаваць чый-н. шлюб. **4.** Адвесці часткі чаго-н. у розныя бакі; рассунуць, расставіць што-н. злучанае. *Р. мост.* ◊ **Развесці рукамі** (разм.) — павесці рукамі ў розныя бакі ў знак здзіўлення, бяссілля ў вырашэнні якой-н. справы. ‖ *незак.* **разво́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **развядзе́нне**, -я, *н.* (да 4 знач.), **разво́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1, 3 і 4 знач.) *і* **разво́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 4 знач.; спец.).

**РАЗВЕ́СЦІ**[2], -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзё́м, -ведзяце́, -вяду́ць; -вё́ў, -вяла́; -ло́; -вядзі́; -ве́дзены; *зак., што.* Зрабіць слабейшым раствор чаго-н., дадаўшы вадкасці; разбавіць. *Р. спірт. Р. фарбу.* ‖ *незак.* **разво́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **развядзе́нне**, -я, *н.*

**РАЗВЕ́СЦІ**[3], -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзё́м, -ведзяце́, -вяду́ць; -вё́ў, -вяла́, -ло́; -вядзі́; -ве́дзены; *зак.* **1.** *каго-што.* Даць распладзіцца каму-н., разрасціся чаму-н. *Р. трусоў. Р. парк.* **2.** У спалучэнні з абстрактным назоўнікам азначае: пачаць рабіць тое, аб чым гаворыцца ў назоўніку (разм.). *Р. доўгую, пустую гутарку. Р. актыўную дзейнасць.* **3.** *што.* Распаліць, раскласці (агонь, вогнішча). ‖ *незак.* **разво́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **развядзе́нне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.) *і* **разво́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 знач.). *Пакінуць рубель на р.*

**РАЗВЕ́СЦІСЯ**[1], -вяду́ся, -вядзе́шся, -вядзе́цца; -вядзё́мся, -ведзяце́ся, -вяду́цца; -вё́ўся, -вяла́ся, -ло́ся; -вядзі́ся; *зак., з кім.* Скасаваць свой шлюб. *Р. з жонкаю.* ‖ *незак.* **разво́дзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца. ‖ *наз.* **разво́д**, -у, *М* -дзе, *м.*

**РАЗВЕ́СЦІСЯ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -вядзе́цца; -вё́ўся, -вяла́ся, -ло́ся; *зак.* Распладзіцца, размножыцца. *Развялося многа камароў.* ‖ *незак.* **разво́дзіцца**, -дзіцца.

**РАЗВЕСЯЛІ́ЦЦА**, -весялю́ся, -вясе́лішся, -вясе́ліцца; *зак.* Стаць вясёлым. *І дзядзька наш развесяліўся.* ‖ *незак.* **развясе́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗВЕСЯЛІ́ЦЬ** *гл.* весяліць.

**РАЗВЕ́ШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Павесіць у розных месцах. *Р. малюнкі. Р. бялізну.* ‖ *незак.* **разве́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗВЕ́ШВАЦЬ** *гл.* развесіць, развешаць.

**РАЗВЕ́ЯЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́ецца; *зак.* **1.** Разнесціся ва ўсе бакі ад ветру і пад. *Дым развеяўся.* **2.** *перан.* Рассеяцца, знікнуць. *Сумненні развеяліся.* ‖ *незак.* **разве́йвацца**, -аецца.

**РАЗВЕ́ЯЦЬ**, -ве́ю, -ве́еш, -ве́е; -ве́й; -ве́яны; *зак., што.* **1.** Разнесці ў розныя бакі (ветрам). *Віхор падхапіў шматкі сухога сена, падняў іх угару і развеяў.* **2.** *перан.* Рассеяць, знішчыць, разагнаць. *Р. трывогу. Р. сумненні.* ‖ *незак.* **разве́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗВЁРСТВАЦЬ** *гл.* развярстаць.

**РАЗВЁРСТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Планавае размеркаванне каго-, чаго-н. *Р. спецыялістаў.*

**РАЗВІДНЕ́ЦЦА**, -е́ецца; *безас., зак.* Тое, што і *развіднець. Не зусім яшчэ развіднелася.* ‖ *незак.* **развідні́вацца**, -аецца *і* **развідня́цца**, -я́ецца.

**РАЗВІДНЕ́ЦЬ**, -е́е; *безас., зак.* Пра світанне, наступленне дзённага святла. *Развіднела ўжо.* ‖ *незак.* **развідня́ць**, -я́е.

**РАЗВІ́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* **1.** Раздвоены ствол, сук і пад., а таксама месца, дзе пачынаецца раздваенне. *Р. дуба.* **2.** Месца разыходжання дарогі і пад. *На развіліне дарог.*

**РАЗВІ́ЛІСТЫ**, -ая, -ае. З развілінай. *Р. ствол старога дрэва.* ‖ *прым.* **развілі́стасць**, -і, *ж.*

**РАЗВІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). Тое, што і *развіліна* (у 2 знач.). *На развілцы дарог адбылася сустрэча.*

**РАЗВІНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нё́мся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* (разм.). Тое, што і *разгарнуцца* (у 1 знач.). ‖ *незак.* **развіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗВІНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нё́м, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што* (разм.). Тое, што і *разгарнуць* (у 1, 3 і 4 знач.). *Р. сцяг.* ‖ *незак.* **развіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗВІТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які бывае пры развітанні. *Развітальныя словы. Даць р. абед.*

**РАЗВІТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** *з кім.* Абмяняцца развітальнымі словамі, паціснуць адзін аднаму рукі пры расставанні. *Р. перад ад'ездам.* **2.** *з кім-чым.* Пакінуць што-н., расстацца. *Р. са службай.* ◊ **Развітацца з белым светам (з жыццём)** — памерці. ‖ *незак.* **разві́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *наз.* **развіта́нне**, -я, *н.* (паводле 1 знач.).

**РАЗВІТЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які дасягнуў высокай ступені развіцця. *Развітая культура.* **2.** З шырокім кругаглядам, усебакова адукаваны. *Р. малады чалавек.* ‖ *наз.* **разві́тасць**, -і, *ж.*

**РАЗВІ́ЦЦА**, -заўю́ся, -заўе́шся, -заўе́цца; -звіўся, -звіла́ся, -ло́ся; *зак.* **1.** Раскруціцца, расплесціся (пра што-н. звітае, завітае). *Вяроўка развілася.* **2.** Распусціцца (пра пупышкі, кветкі і пад.). *З прыходам цяпла дрэўца прыгожа развілося. Тады каза разжывецца, як куст разаўецца* (прыказка). **3.** Відазмяняючыся, знаходзячыся ў

працэсе росту, дасягнуць вышэйшай або пэўнай стадыі развіцця. *Усходы добра развіліся.* **4.** Дайсці да высокай ступені дасканаласці, высокага ўзроўню, найбольшай сілы. *Шырока развілася сучасная літаратура. Здольнасці развіліся.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць мацнейшым, умацавацца, памацнець. *Мускулы развіліся.* **6.** Паступова павялічваючыся, узмацняючыся, дайсці да значнай ступені. *З гары развілася вялікая скорасць.* ‖ *незак.* **развіва́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **развіццё**, -я́, *н.*

**РАЗВІ́ЦЬ**, -заўю́, -заўе́ш, -заўе́; -заўём, -заўяце́, -заўю́ць; -зві́ў, -звіла́, -ло́; -зві́; -зві́ты (да 1 знач.) *і* -звіты́; *зак.* **1.** *што.* Раскруціць, расплесці што-н. звітае, завітае. *Р. вяроўку.* **2.** *што.* Даць чаму-н. памацнець, узмацніць; паспрыяць узнікненню і ўмацаванню (якіх-н. якасцей, уласцівасцей). *Р. мускулы. Р. памяць. Р. цікавасць да навукі.* **3.** *каго-што.* Давесці да якой-н. ступені духоўнай сталасці, свядомасці, культуры. *Р. вучня. Р. грамадства.* **4.** *што.* Падняць узровень чаго-н. *Р. прамысловасць краіны.* **5.** *што.* З усёй энергіяй разгарнуць што-н. *Р. грамадскую дзейнасць.* **6.** Паступова павялічваючы, давесці да значнай ступені. *Самалёт развіў вялікую хуткасць.* **7.** *што.* Распаўсюдзіць, паглыбіць і пашырыць змест або прымяненне чаго-н. *Р. думку. Р. свае доказы.* ‖ *незак.* **развіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **развіццё**, -я́, *н.*

**РАЗВО́Д**[1], -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* развесці[1], развесціся[1]. **2.** Скасаванне шлюбу. *Бацька і маці ў разводзе. Падаць на р. Даць р.* ‖ *прым.* **разво́дны**, -ая, -ае. *Разводная справа.*

**РАЗВО́Д**[2], -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Агляд і размеркаванне па пастах падраздзяленняў, прызначаных у каравул.

**РАЗВО́Д**[3] *гл.* развесці[3].

**РАЗВО́ДДЗЕ**, -я, *н.* Вясенні разліў, веснавая вада.

**РАЗВО́ДЗІЦЦА**[1] *гл.* развесціся[1].

**РАЗВО́ДЗІЦЦА**[2] *гл.* развесціся[2].

**РАЗВО́ДЗІЦЬ**[1] *гл.* развесці[1].

**РАЗВО́ДЗІЦЬ**[2] *гл.* развесці[2].

**РАЗВО́ДЗІЦЬ**[3] *гл.* развесці[3].

**РАЗВО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** *гл.* развесці[1]. **2.** Інструмент для развядзення зубоў пілы (спец.).

**РАЗВО́ДЫ**, -аў. **1.** Буйныя неакрэсленыя ўзоры на чым-н. *Матэрыя ў р.* **2.** Няроўныя, звілістыя падцёкі, рагі (разм.). *На сцяне р. ад сырасці.*

**РАЗВО́З** *гл.* развезці[1].

**РАЗВО́ЗІЦЬ**[1] *гл.* развезці[1].

**РАЗВО́ЗІЦЬ**[2] *гл.* развезці[2].

**РАЗВО́ЗКА** *гл.* развезці[1].

**РАЗВО́ЙКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пачаць войкаць (ад болю, жалю, крыўды і пад.). *Развойкаўся стары.*

**РАЗВО́РВАЦЬ** *гл.* разараць[1].

**РАЗВУЧЫ́ЦЦА**, -вучу́ся, -ву́чышся, -ву́чыцца; *зак., з інф.* Страціць навыкі, уменне рабіць што-н. *Р. вышываць. Р. іграць на піяніна.* ‖ *незак.* **развýчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗВУЧЫ́ЦЬ**, -вучу́, -ву́чыш, -ву́чыць; -ву́чаны; *зак., што.* Вывучыць з мэтай выканання, паўтарэння. *Р. песню. Р. ролю.* ‖ *незак.* **развýчваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **развýчванне**, -я, *н.*

**РАЗВЯВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* Калыхацца ад ветру. *Развяваюцца сцягі на плошчы.*

**РАЗВЯВА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *незак., што.* Калыхаць, распускаць, разносіць у розныя бакі. *Вецер развявае валасы.*

**РАЗВЯДЗЕ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (разм.). Разведзены з жонкай мужчына.

**РАЗВЯДЗЕ́ННЕ**[1] *гл.* развесці[1].

**РАЗВЯДЗЕ́ННЕ**[2] *гл.* развесці[2].

**РАЗВЯДЗЕ́ННЕ**[3] *гл.* развесці[3].

**РАЗВЯДЗЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Разведзеная з мужам жанчына.

**РАЗВЯЗА́ЦЦА**, -вяжу́ся, -вя́жашся, -вя́жацца; -вяжы́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раз'яднацца (пра канцы чаго-н. звязанага). *Развязаўся вузел. Хустка развязалася.* **2.** *перан., з кім-чым.* Вызваліцца ад таго, што (хто) звязвае, не дае свабоды дзеянням (разм.). *Р. з кампаніяй.* ‖ *незак.* **развя́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗВЯЗА́ЦЬ**, -вяжу́, -вя́жаш, -вя́жа; -вяжы́; -вя́заны; *зак.* **1.** *каго-што.* Раз'яднаць канцы чаго-н. звязанага, вызваліць ад розных завязак. *Р. вузел. Р. хустку. Р. мяшок.* **2.** *перан., што.* Даць чаму-н. развіцца, разгарнуцца, праявіцца ў поўнай меры. *Р. ініцыятыву мас.* ◊ **Развязаць рукі** *каму* — даць свабоду дзеянняў, вызваліць ад якіх-н. абавязацельстваў. **Развязаць язык** *каму* — прымусіць разгаварыцца. ‖ *незак.* **развя́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **развя́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* (да 1 знач.) *і* **развя́званне**, -я, *н.*

**РАЗВЯ́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* **1.** *гл.* развязаць. **2.** Збудаванне на аўтамабільных дарогах, якое дазваляе транспарту бесперапынна рухацца ў розных напрамках. *Пабудаваць новую развязку.* **3.** Заключны эпізод, які завяршае развіццё сюжэта мастацкага твора; вырашэнне канфлікту ў літаратурным творы (спец.). *Нечаканая р. рамана.*

**РАЗВЯ́ЗНЫ**, -ая, -ае. Залішне вольны, бесцырымонны (чалавек, яго паводзіны). *Развязныя манеры. Паводзіць сябе развязна* (прысл.). ‖ *наз.* **развя́знасць**, -і, *ж.*

**РАЗВЯНЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Пазбавіць ранейшага прызнання, паказаўшы адмоўныя бакі каго-, чаго-н. *Р. асобу. Р. суб'ектывізм.* ‖ *незак.* **разве́нчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **развянча́нне**, -я, *н.*

**РАЗВЯРНУ́ЦЦА**, -вярну́ся, -ве́рнешся, -ве́рнецца; -вярні́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разваліцца, разбурыцца. *Старая хата развярнулася.* **2.** Павярнуцца, каб змяніць становішча або напрамак свайго руху. **3.** Пра наяўнасць месца для пэўных дзеянняў. *Там не р., малы ўчастак.* **4.** Размясціцца ў шырыню па лініі фронту, прыняць баявы парадак (спец.). ‖ *незак.* **разваро́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **развaро́т**, -у, *М* -ро́це, *м.* (да 2 знач.).

**РАЗВЯРНУ́ЦЬ**, -вярну́, -ве́рнеш, -ве́рне; -вярні́; -ве́рнуты; *зак., што.* **1.** Разваліць, раскідаць, разбурыць. *Р. старую будыніну. Р. бульдозерам зямлю. Выбухам развярнула* (безас.) *зямлю.* **2.** Раскруціўшы, зрабіць, пашырыць (дзірку, адтуліну і пад.). *Р. дзірку.* **3.** Павярнуўшы, змяніць становішча прадмета, напрамак яго руху. *Р. машыну.* **4.** Размясціць у шырыню па лініі фронту (спец.). *Р. войска. Р. строй.* ‖ *незак.* **разваро́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разваро́чванне**, -я, *н. і* **развaро́т**, -у, *М* -ро́це, *м.* (да 3 знач.).

**РАЗВЯРСТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Тое, што і *размеркаваць* (у 1 знач.). *Р. сродкі. Р. грошы на новую будоўлю.* **2.** Вярстаючы набраны тэкст, размеркаваць яго па лістах, старонках (спец.). ‖ *незак.* **развёрстваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗВЯРЦЕ́ЦЬ**, -вярчу́, -ве́рціш, -ве́рціць; -вярці́; -ве́рчаны; *зак., каго-што.* Вызваліць ад абгорткі, раскруціць. *Р. цукерку. Р. палец.*

**РАЗВЯРЭ́ДЗІЦЬ** *гл.* вярэдзіць.

**РАЗВЯСЕ́ЛЬВАЦЦА** *гл.* развесяліцца.

**РАЗГАВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -во́рышся, -во́рыцца; *зак.* (разм.). **1.** Пачаць гаварыць, стаць гаваркім. *Мужчыны больш маўчалі, нарэшце разгаварыліся.* **2.** Пачаць шчырую гаворку з кім-н. *Дзяўчаты разгаварыліся ў дарозе.*

**РАЗГАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -во́рыш, -во́рыць; *зак., каго (што)* (разм.). Выклікаць у кім-н. жаданне ўключыцца ў гаворку, пачаць гаварыць. *Р. прысутных на сходзе. Р. маўчуноў.*

**РАЗГАВЕ́ЦЦА**, -е́юся, -е́ешся, -е́ецца; *зак.* **1.** У веруючых: пасля посту першы раз паесці скаромнага. **2.** З'есці ці выпіць чаго-н. смачнага ўпершыню пасля доўгага перапынку (разм.). *Хоць р. крыху.* ‖ *незак.* **разгаўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **разгаве́нне**, -я, *н.*

**РАЗГАДАВА́ЦЬ**, -дую́, -дуе́ш, -дуе́; -дуй; -дава́ны; *зак., каго (што).* **1.** Старанна даглядаючы, забяспечыць рост, развіццё каго-, чаго-н. *Р. каня, як на выстаўку.* **2.** Выгадаваць у вялікай колькасці, расплодзіць. *Р. гусей. Р. свіней.* ‖ *незак.* **разгадо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗГАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *што.* Знайсці правільны адказ на загаданае; адгадаць. *Р. рэбус. Р. загадку.* **2.** *каго-што.* Зразумець сэнс чаго-н. незразумелага, уясніць характар каго-, чаго-н. *Р. чалавека. Р. намеры праціўніка.* ‖ *незак.* **разга́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разга́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.*

**РАЗГА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто разгадвае што-н., знаходзіць правільны адказ на загаданае. ‖ *ж.* **разга́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**РАЗГАЙДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **РАЗГО́ЙДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Пачаць моцна гайдацца (гойдацца). *Лодка разгайдалася на вадзе.* ‖ *незак.* **разго́йдвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗГАЙДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **РАЗГО́ЙДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Прымусіць моцна гайдацца (гойдацца). *Р. арэлі.* **2.** Гайдаючы (гойдаючы) каго-, што-н., надаць яму сілу інерцыі для кідання. *Р. за рукі-ногі і кінуць у ваду.* ‖ *незак.* **разго́йдваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗГАЛАСІ́ЦЦА**, -лашу́ся, -ло́сішся, -ло́сіцца; *зак.* Пачаць моцна і доўга галасіць. *Разгаласілася ўдава.*

**РАЗГАЛЁКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Раскрычацца, звычайна завучы каго-н. *Разгалёкаліся дзеці ў лесе.*

**РАЗГА́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* (разм.). Тое, што і *развіліна. Р. старога дрэва. На разгаліне дарог спынілася машына.*

**РАЗГАЛІНАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* разгалінавацца, разгалінаваць. **2.** Месца, дзе што-н. разгаліноўваецца, разыходзіцца ў розныя бакі. *На разгалінаванні дарог.*

**РАЗГАЛІНАВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае многа галін, разгалінаванняў. *Разгалінаваная яблыня.* **2.** Які мае многа аддзелаў, аддзяленняў, размешчаных у розных месцах. *Разгалінаванае прадпрыемства.* ‖ *наз.* **разгалінава́насць**, -і, *ж.*

**РАЗГАЛІНАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ну́ецца; *зак.* **1.** Даць галіны (пра расліны). *Разгалінавалася сасна.* **2.** *перан.* Раздзяліцца на некалькі частак, ліній, напрамкаў, якія ідуць з аднаго пункта ў розныя бакі. ‖ *незак.* **разгаліно́ўвацца**, -аецца *і* **разгаліня́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **разгалінава́нне**, -я, *н.*

**РАЗГАЛІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* **1.** Раздзяліць на некалькі частак, ліній, якія ідуць ад аднаго пункта ў розныя бакі. *Р. чыгуначны пуць.* **2.** Раздзяліць на часткі, аддзелы, аддзяленні і пад. ‖ *незак.* **разгаліно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разгалінава́нне**, -я, *н.*

**РАЗГАЛІ́НІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніцца; *зак.* Пайсці ў галіны, даць многа голля. *Разгалінілася ліпа.* ‖ *незак.* **разгаліня́цца**, -яецца. ‖ *наз.* **разгаліне́нне**, -я, *н.*

**РАЗГА́ЛІСТЫ**, -ая, -ае. З шырока раскінутымі галінамі. *Р. дуб.* ‖ *наз.* **разга́лістасць**, -і, *ж.*

**РАЗГАМАНІ́ЦЦА**, -манюся, -мо́нішся, -мо́ніцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *разгаварыцца. Разгаманіліся сябры.* ‖ *незак.* **разгамо́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗГАНЯ́ЦЦА** *гл.* разагнацца.

**РАЗГАНЯ́ЦЬ** *гл.* разагнаць.

**РАЗГА́Р**, -у, *м.* Пара самага высокага развіцця, самага моцнага праяўлення чаго-н., момант найвышэйшага напружання ў развіцці чаго-н. *У разгары пасяўная. Вясна ў разгары.*

**РАЗГАРАДЗІ́ЦЦА**, -раджу́ся, -ро́дзішся, -ро́дзіцца; *зак., з кім.* Аддзяліцца адзін ад аднаго агароджай, перагародкай. *Р. з суседзямі парканам.* ‖ *незак.* **разгаро́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗГАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны; *зак., што.* **1.** Раздзяліць перагародкай, агароджай. *Р. пакой у кватэры. Р. участак.* **2.** Раскідаць, разбурыць тое, чым было перагароджана што-н. ‖ *незак.* **разгаро́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗГАРА́ЦЦА** *гл.* разгарэцца.

**РАЗГАРАЧЫ́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца; *зак.* **1.** *гл.* гарачыцца. **2.** Адчуць жар, разагрэцца. *Р. ад спёкі.*

**РАЗГАРЛАПА́НІЦЦА** *і* **РАЗГАРЛА́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* (разм.). Раскрычацца. *Чаго разгарлапаніўся?*

**РАЗГАРНЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* разгарнуцца. **2.** Свабода дзеянняў, размах. *Ніякага разгарнення чалавеку.*

**РАЗГАРНУ́ЦЦА**, -гарну́ся, -го́рнешся, -го́рнецца; -гарні́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Расправіцца, расхінуцца (пра што-н. згорнутае, загорнутае). *Пакунак разгарнуўся. Цукерка разгарнулася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раскрыцца (пра што-н. складзенае). *Кніга разгарнулася.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раскрыцца, распусціцца (пра кветкі, лісты і пад.). *Бутоны маку разгарнуліся.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Раскінуцца, быць бачным на вялікай адлегласці. *Перад вачамі разгарнулася маляўнічая прастора.* **5.** *перан.* Праявіць свае сілы і здольнасці, выявіцца ў шырокім маштабе. *Р. на свабодзе. Талент мастака разгарнуўся.* **6.** *перан.* Прыняць шырокі размах. *Жніво разгарнулася.* **7.** Падрыхтавацца да дзеяння; прыняць баявы парадак (спец.). ‖ *незак.* **разго́ртвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **разго́ртванне**, -я, *н. і* **разгарне́нне**, -я, *н.* (да 5 і 6 знач.).

**РАЗГАРНУ́ЦЬ**, -гарну́, -го́рнеш, -го́рне; -гарні́; -го́рнуты; *зак., што.* **1.** Раскрыць што-н. згорнутае, загорнутае, складзенае. *Р. сцяг. Р. пакунак. Р. газету.* **2.** Расхінуць, рассунуць. *Разгарнулі хлопцы прысак і дасталі печаную бульбу.* **3.** Выпрастаць, расправіць. *Р. свае плечы.* **4.** Раскрыць, распусціць. *Разгарнула пялёсткі шыпшына.* **5.** *перан.* Падрабязна выкласці, выказаць, апісаць. *Р. тэму сачынення.* **6.** *перан.* Даць магчымасць сілам, здольнасцям поўна і свабодна развіцца. *Р. талент.* **7.** *перан.* Павялічыць аб'ём, паглыбіць змест, зрабіць буйнейшым па жанры. *Байку пісьменнік паспрабаваў р. у вялікую аповесць.* **8.** Зрабіць, арганізаваць што-н. у шырокіх маштабах. *Р. спаборніцтва.* **9.** Падрыхтаваць да дзеяння, функцыянавання. *Р. выстаўку.* **10.** Размясціць у шырыню па лініі фронту, прыняць баявы парадак (спец.). **11.** Начарціць на плоскасці паверхню геаметрычнага цела (спец.). *Р. мнагаграннік.* ‖ *незак.* **разго́ртваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разго́ртванне**, -я, *н. Р. сюжэта рамана.*

**РАЗГАРО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Разгароджанае месца ў плоце, праход.

**РАЗГАРЭ́ЦЦА**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; -ры́мся, -рыце́ся, -ра́цца; -ры́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць моцна гарэць. *Дровы ў печы разгарэліся.* **2.** *перан.* (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць чырвоным, гарачым (ад хвалявання, узбуджэння і пад.). *Шчокі разгарэліся.* **3.** *перан.* Моцна ўзбудзіцца. *Разгарэліся спрэчкі.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Узмацняючыся, дайсці да высокай ступені напружання, развіцця. *Спрэчка разгарэлася. Бой разгарэўся.* ‖ *незак.* **разга́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **разгара́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗГАСЦІ́ЦЦА**, -гашчу́ся, -го́сцішся, -го́сціцца; *зак.* (разм.). Вельмі доўга прабыць у гасцях. *Разгасціліся ў цёткі.*

**РАЗГА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). Разгалісты, з расстаўленымі сукамі, галінамі і пад. *Р. клён.* ‖ *наз.* **разга́тасць**, -і, *ж.*

**РАЗГАЎЛЯ́ЦЦА** *гл.* разгавецца.

**РАЗГА́ЦІНА**, -ы, *мн.* -ы, -цін, *ж.* (разм.). Рагуліна, палка з развілінай. *Р. прыгадзілася на падпорку.*

**РАЗГА́ЦІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *разгаты. Разгацістая елка.* ‖ *наз.* **разга́цістасць**, -і, *ж.*

**РАЗГІ́Б**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* разагнуць. **2.** Месца, дзе прадмет разагнуты. *Старонкі пацерліся на разгібе.*

**РАЗГІБА́ЦЦА** *гл.* разагнуцца.

**РАЗГІБА́ЦЬ** *гл.* разагнуць.

**РАЗГІЛЬДЗЯ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (разм.). Нядбайны, безадказны чалавек. ‖ *ж.* **разгільдзя́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -дзя́ек. ‖ *прым.* **разгільдзя́йскі**, -ая, -ае.

**РАЗГІЛЬДЗЯ́ЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Быць разгільдзяем.

**РАЗГІЛЬДЗЯ́ЙСТВА**, -а, *н.* (разм.). Нядбайнасць, безадказнасць у працы, справах. *Недапушчальнае р.*

**РАЗГІНА́ЦЦА** *гл.* разагнуцца.

**РАЗГІНА́ЦЬ** *гл.* разагнуць.

**РАЗГЛАГО́ЛЬСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* (разм.). Многаслоўна, без толку гаварыць аб чым-н. *Р. аб сіле мастацтва.* ‖ *наз.* **разглаго́льстваванне**, -я, *н.*

**РАЗГЛА́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзіцца; *зак.* **1.** Стаць гладкім, роўным, без складак і няроўнасцей. *Матэрыял разгладзіўся.* **2.** Расправіцца, знікнуць (пра маршчыны, няроўнасці). *Маршчыны разгладзіліся.* ‖ *незак.* **разгла́джвацца**, -аецца.

**РАЗГЛА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* Зрабіць гладкім, роўным; расправіць. *Р. складкі.* ‖ *незак.* **разгла́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗГЛЕ́ДЗЕЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* **1.** Паглядзець вакол сябе, прыглядзецца. *Зайшоў чалавек у хату, разгледзеўся.* **2.** *перан.* Азнаёміцца з абстаноўкай. *Не даць р., апомніцца ворагу.* ‖ *незак.* **разгляда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **разгля́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗГЛЕ́ДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Углядаючыся, агледзець. *Р. мясцовасць. Р. надпіс.* **2.** *перан.* Заўважыць, разабрацца ў кім-, чым-н. *Уменне р. новае.* **3.** *што.* Унікнуць, разабраць, абмеркаваць. *Р. заяву. Р. жыллёвае пытанне.* ‖ *незак.* **разгляда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **разгля́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разгля́д**, -у, *М* -дзе, *м.*, **разгляда́нне**, -я, *н. і* **разгля́дванне**, -я, *н.*

**РАЗГНЕ́ВАНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ў стане гневу, выяўляе гнеў. *Разгневаная маці.* ‖ *наз.* **разгне́ванасць**, -і, *ж.*

**РАЗГНЕ́ВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Дайсці да стану моцнага гневу.

**РАЗГНЕ́ВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* Тое, што і *разгнявіць.*

**РАЗГНЯВІ́ЦЬ**, -нявлю́, -нявíш, -нявíць; -нявíм, -невіце́, -нявя́ць; *зак., каго-што.* Давесці да стану моцнага гневу.

**РАЗГНЯЗДЗІ́ЦЦА**, -нязджу́ся, -не́здзішся, -не́здзіцца; *зак.* Пра птушак: размясціцца па гнёздах.

**РАЗГО́ЙДАЦЦА** *гл.* разгайдацца.

**РАЗГО́ЙДАЦЬ** *гл.* разгайдаць.

**РАЗГО́ЙДВАЦЦА** *гл.* разгайдацца.

**РАЗГО́ЙДВАЦЬ** *гл.* разгайдаць.

**РАЗГО́Н**, -у, *м.* **1.** *гл.* разагнаць. **2.** Рух з паступова нарастаючай хуткасцю; разбег. *Набраць р.* **3.** Адлегласць ад аднаго пункта да другога. *Які р!* **4.** *перан.* Шырыня, размах у дзеяннях, дзейнасці. *Гаспадарка набірае р.* **5.** Строгая вымова; разнос (разм.). *Даць р. за парушэнне дысцыпліны.* ‖ *прым.* **разго́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**РАЗГО́НІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Звязаны з разгонам (у 2 знач.); які бывае пры разгоне (у 2 знач.). *Разгоністая хада.* **2.** Шырокі, з вялікім разгонам (у 3 знач.); размашысты. *Р. будынак новага вакзала.* **3.** Залівісты, працяглы (пра голас, брэх і пад.). **4.** З вялікімі прамежкамі паміж літарамі (пра почырк, друк). *Р. радок.* ‖ *наз.* **разго́ністасць**, -і, *ж.*

**РАЗГО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* **1.** *гл.* разагнаць. **2.** Расплюшчванне кавалка металу ў папярочным напрамку (спец.). **3.** Паслядоўная паўторная перагонка вадкасцей, сумесей (спец.). **4.** Строгая вымова; прапробка, разнос (разм.).

**РАЗГО́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* разгон. **2.** Тое, што і *разгоністы* (у 1 і 2 знач.).

**РАЗГО́РНІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* (разм.). Паддацца наплыву жалю; разжаліцца.

**РАЗГО́РНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *зак., каго-што* (разм.). Выклікаць жаль у каго-н.; разжаліць. *Р. бацькоў.*

**РАЗГО́РНУТЫ**, -ая, -ае. **1.** Шырокі, падрабязны. *Р. план. Р. сказ* (які мае паясняльныя словы). **2.** Шырока арганізаваны. *Разгорнутае спаборніцтва.* **3.** Размешчаны ў шырыню па лініі фронту (спец.). ‖ *наз.* **разго́рнутасць**, -і, *ж.*

**РАЗГО́РТВАННЕ** *гл.* разгарнуцца, разгарнуць.

**РАЗГО́РТВАЦЦА** *гл.* разгарнуцца.

**РАЗГО́РТВАЦЬ** *гл.* разгарнуць.

**РАЗГО́РТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* (спец.). Разгорнутая на плоскасці паверхня геаметрычнай фігуры. *Р. бакавой паверхні прызмы.*

**РАЗГРАБА́ННЕ** *гл.* разгрэбці.

**РАЗГРАБА́ЦЬ** *гл.* разгрэбці.

**РАЗГРА́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., што.* Грабячы, расцягнуць, раскрасці. *Р. гаспадарку.* ‖ *незак.* **разграбля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **разграбле́нне**, -я, *н.*

**РАЗГРАМІ́ЦЬ**, -млю́, -міш, -міць; -мім, -міце́, -мя́ць; -ро́млены; *зак., каго-што.* **1.** Разарыць, разбурыць. *Р. абсталяванне. Р. склады.* **2.** Разбіць, знішчыць у баі, у выніку барацьбы. *Р. варожы гарнізон.* **3.** *перан.* Раскрытыкаваць, даказаць ілжывасць, памылковасць чыіх-н. перакананняў; разнесці. *Р. артыкул.* ‖ *наз.* **разгро́м**, -у, *м.*; *прым.* **разгро́мны**, -ая, -ае. *Разгромнае выступленне ў друку.*

**РАЗГРАФІ́ЦЬ**, -флю́, -фíш, -фíць; -фíм, -фіце́, -фя́ць; -флёны; *зак., што.* Расчарціць на графы (у 1 знач.). *Р. ліст паперы.* ‖ *незак.* **разграфля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**РАЗГРО́М**, -у, *м.* **1.** *гл.* разграміць. **2.** Сляды, вынік разбурэння.

**РАЗГРУ́ЗАЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да разгрузкі, служыць для разгрузкі. *Разгрузачныя работы. Р. пункт.*

**РАЗГРУЗІ́ЦЦА**, -ружу́ся, -ру́зішся, -ру́зіцца; *зак.* **1.** Вызваліцца ад грузу. *Разгрузілася машына.* **2.** *перан.* Вызваліцца ад часткі работы, ад дадатковай нагрузкі. ‖ *незак.* **разгружа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗГРУЗІ́ЦЬ**, -ружу́, -ру́зіш, -ру́зіць; -ру́жаны; *зак., каго-што.* **1.** Вызваліць ад грузу. *Р. вагон.* **2.** *перан.* Вызваліць ад чаго-н. непатрэбнага, лішняга, ад дадатковай нагрузкі (разм.). *Р. школьную праграму.* ‖ *незак.* **разгружа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **разгру́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.*

**РАЗГРУЗНЫ́**, -а́я, -о́е (спец.). Прызначаны для разгрузкі. *Разгрузное судна.*

**РАЗГРУ́ЗЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Рабочы, які працуе на разгрузцы. **2.** Прыстасаванне для разгрузкі чаго-н. *Механічны р.* ‖ *ж.* **разгру́зчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц (да 1 знач.).

**РАЗГРУ́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Пачаць моцна і доўга грукаць.

**РАЗГРУПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны; *зак., каго-што.* Разбіць на групы, размясціць групамі. *Р. вучняў.* ‖ *незак.* **разгрупо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗГРЫЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што.* Грызці, разрываючы або раздрабняючы зубамі што-н. цвёрдае, моцнае.

**РАЗГРЫ́ЗЦІ** *гл.* грызці.

**РАЗГРЭ́БЦІ**, -грабу́, -грабе́ш, -грабе́; -грабём, -грабяце́, -грабу́ць; разгро́б, -грэ́бла *і* -грабла́, -грэ́бла *і* -грабло́; -грабí; -грэ́бены; *зак., што.* Адгрэбці ў розныя бакі, раскідаць што-н. сыпкае, рыхлае; расчысціць ад чаго-н. сыпкага, рыхлага і пад. *Р. сена. Р. кучу снегу.* ‖ *незак.* **разграба́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **разграба́нне**, -я, *н.*

**РАЗГУБІ́ЦЦА**, -гублю́ся, -гу́бішся, -гу́біцца; *зак.* Страціць на нейкі час рашучасць, здольнасць разумець, дзейнічаць (ад хвалявання, страху, збянтэжанасці); прыйсці ў замяшанне. *Р. перад небяспекай.* ‖ *незак.* **разгу́блівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗГУБІ́ЦЬ**, -гублю́, -гу́біш, -гу́біць; -гу́блены; *зак., каго-што.* Пагубляць, растраціць паступова (многіх, многае). *Р. рэчы. Р. сяброў. Р. веды.* ‖ *незак.* **разгу́бліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗГУБЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *зак.* Тое, што і *разгубіць.*

**РАЗГУ́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Моцнае, буйнае праяўленне чаго-н. *Р. шавінізму. Р. мяцеліцы.* **2.** Нястрымнае п'янства, папойка.

**РАЗГУ́ЛЛЕ**, -я, *н.* (разм.). Бурнае вяселле, вясёлае правядзенне часу. *Святочнае р.*

**РАЗГУ́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Павольна, не спяшаючыся, гуляць, хадзіць для адпачынку. *Р. у парку.*

**РАЗГУ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Схільны да разгулу (у 2 знач.); поўны разгулу (у 2 знач.). *Разгульная кампанія.* ‖ *наз.* **разгу́льнасць**, -і, *ж.*

**РАЗГУЛЬТА́ІЦЦА**, -а́юся, -а́ішся, -а́іцца; *зак.* (разм.). Стаць гультаём, разленавацца. *Зусім разгультаіўся хлопец.* ‖ *незак.* **разгульта́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗГУЛЬТАЯВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *зак.* (разм.). Тое, што і *разгультаіцца.*

**РАЗГУЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* **1.** Пачаўшы гуляць, захапіцца гульнёй, забавамі; развесяліцца. *Разгулялася дзіця.* **2.** Даць сабе поўную волю; праявіць сябе ў поўную меру сваіх сіл, здольнасцей і жаданняў; разысціся. *Футбалісты разгуляліся.* **3.** Дасягнуць у сваім праяўленні вялікай інтэнсіўнасці, сілы. *Разгулялася мяцеліца. Разгулялася стыхія.*

**РАЗГУСЦІ́СЯ**, -гуду́ся, -гудзе́шся, -гудзе́цца; -гудзёмся, -гудзяце́ся, -гуду́цца; разгу́ўся, -гула́ся, -гуло́ся; -гудзіся; *зак.* (разм.). Пачаць гусці не перастаючы. *Вецер разгуўся.*

**РАЗГУ́ТАРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). Завесці гутарку; разгаварыцца. *Р. па дарозе.*

**РАЗГУ́ШКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пачаць гушкацца моцна, не спыняючыся (на гушкалцы). ‖ *незак.* **разгу́шквацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗГУ́ШКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* **1.** Рухаючы з аднаго боку ў другі або зверху ўніз, падштурхоўваючы, прымусіць гушкацца моцна, не спыняючыся. *Р. маятнік. Р. арэлі.* **2.** Гушкаючы каго-, што-н., надаць яму сілу інерцыі для кідання, штуршка і пад. ‖ *незак.* **разгу́шкваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разгу́шкванне**, -я, *н.*

**РАЗДАБРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які растаўсцеў; растаўсцелы. *Раздабрэлая гаспадыня ўвіхалася каля печы.* ‖ *наз.* **раздабрэ́ласць**, -і, *ж.*

**РАЗДАБРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* Тое, што і *растаўсцець.*

**РАЗДАБЫ́ТКІ**, -аў (разм.). У выразе: **на (у) раздабыткі** — каб раздабыць што-н., разжыцца на што-н. (ісці, хадзіць і пад.).

**РАЗДАБЫ́ЦЬ**, -бу́ду, -бу́дзеш, -бу́дзе; раздабы́ў, -была́, -ло́; -бу́дзь; -бы́ты; *зак., каго-што* (разм.). Здабыць, дастаць з цяжкасцямі. *Р. зброю. Р. харчы.* ‖ *незак.* **раздабыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗДАЖДЖЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -даждж́ыцца, *безас.; зак.* (разм.). Стаць надоўга дажджлівым, сырым (пра надвор'е).

**РАЗДАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -до́іцца; *зак.* Пачаць даваць больш малака. *Карова раздаілася.* ‖ *незак.* **раздо́йвацца**, -аецца.

**РАЗДАІ́ЦЬ**, -даю́, -до́іш, -до́іць; -до́ены; *зак., каго-што.* Дабіцца павелічэння надою (ад малочнай жывёлы). ‖ *незак.* **раздо́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раздо́й**, -ю, *м.* і **раздо́йванне**, -я, *н.*

**РАЗДАРО́ЖЖА**, -а, *н.* Месца, дзе сходзяцца і разыходзяцца дарогі, ростань. ◊ **На раздарожжы** — у стане сумнення, роздуму, хістання, у нерашучасці (быць, стаяць, знаходзіцца і пад.).

**РАЗДАРЫ́ЦЬ**, -дару́, -до́рыш, -до́рыць; -до́раны; *зак., каго-што.* Раздаць у выглядзе падарункаў усё, многае. *Р. кнігі сябрам.* ‖ *незак.* **раздо́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗДА́ТАЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* раздаць[1]. **2.** Які прызначаны для раздачы. *Р. матэрыял.* **3.** *у знач. наз.* **разда́тачная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Памяшканне, дзе праводзіцца раздача чаго-н.

**РАЗДА́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца раздачай чаго-н. ‖ *ж.* **разда́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**РАЗДА́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -да́сца, -даду́цца; разда́ўся, -дала́ся, -ло́ся; -да́йся; *зак.* Пра гукі: прагучаць, пачуцца. ‖ *незак.* **раздава́цца**, -дае́цца.

**РАЗДА́ЦЦА**[2], -да́мся, -дасі́ся, -да́сца; -дадзі́мся, -дасцё́ся, -даду́цца; -да́ўся, -дала́ся, -дало́ся; -да́йся; *зак.* **1.** Стаць большым, шырэйшым. *Р. ў плячах.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Расступіцца, рассунуцца ў бакі. *Натоўп раздаўся ў бакі.* **3.** Раскалоцца, распароцца па шве. *Мех раздаўся.* ‖ *незак.* **раздава́цца**, -даю́ся, -дае́шся, -дае́цца; -даё́мся, -даяцё́ся, -даю́цца.

**РАЗДА́ЦЬ**[1], -да́м, -дасі́, -да́сць; -дадзі́м, -дасцё́, -даду́ць; -да́ў, -дала́, -ло́; -да́й; -да́дзены; *зак., каго-што.* Аддаць усё, многае многім. *Р. падарункі. Р. сшыткі.* ‖ *незак.* **раздава́ць**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даё́м, -даяцё́, -даю́ць. ‖ *наз.* **разда́ча**, -ы, *ж.; прым.* **разда́тачны**, -ая, -ае. *Р. пункт.*

**РАЗДА́ЦЬ**[2], -да́м, -дасі́, -да́сць; -дадзі́м, -дасцё́, -даду́ць; -да́ў, -дала́, -ло́; -да́й; -да́дзены; *зак., што.* **1.** Расшырыць, расцягнуць, зрабіць прасторным. *Р. абутак.* **2.** *безас.* Зрабіць поўным, тоўстым. *Хлопца за лета раздало.*

**РАЗДВО́ЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які раздвоіўся; раздзелены надвае. *Раздвоеная губа. Р. след.* **2.** *перан.* Які страціў цэльнасць, унутранае адзінства. *Раздвоенае ўсведамленне.* ‖ *наз.* **раздво́енасць**, -і, *ж. Р. пачуццяў.*

**РАЗДВО́ІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -двоі́цца; *зак.* **1.** Раздзяліцца надвае. *Сцежка раздвоілася.* **2.** *перан.* Страціць цэльнасць, унутранае адзінства, стаць супярэчлівым. *Думкі раздвоіліся.* ‖ *незак.* **раздво́йвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **раздвае́нне**, -я, *н.*

**РАЗДВО́ІЦЬ**, -двою́, -дво́іш, -дво́іць; -дво́ены; *зак., што.* Раздзяліць надвае. *Р. пасму валасоў. Р. провад.* ‖ *незак.* **раздво́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раздвае́нне**, -я, *н.*

**РАЗДЗЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Асобны, адасоблены, самастойны. *Раздзельнае навучанне.* **2.** З перарывамі, перапынкамі, паўзамі. *Раздзельныя крокі.* ‖ *наз.* **раздзе́льнасць**, -і, *ж.*

**РАЗДЗЕ́РЦІ**, -дзяру́, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзяро́м, -дзерацё́, -дзяру́ць; -дзёр, -дзёрла; -дзяры́; -дзёрты; *зак., каго-што.* Тое, што і *разадраць.*

**РАЗДЗЕ́РЦІСЯ**, -дзяру́ся, -дзярэ́шся, -дзярэ́цца; -дзяро́мся, -дзерацё́ся, -дзяру́цца; -дзяры́ся; *зак.* Тое, што і *разадрацца.*

**РАЗДЗЕ́ЦЬ**, -дзе́ну, -дзе́неш, -дзе́не; -дзе́нь; -дзе́ты; *зак., каго-што.* Зняць з каго-н. адзенне. *Р. дзіця.* ‖ *незак.* **раздзява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* (радзей) -дзяю́, -дзяе́ш, -дзяе́; -дзяё́м, -дзеяцё́, -дзяю́ць. ‖ *звар.* **раздзе́цца**, -дзе́нуся, -дзе́нешся, -дзе́нецца; -дзе́нься; *незак.* **раздзява́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* (радзей) -дзяю́ся, -дзяе́шся, -дзяе́цца; -дзяё́мся, -дзеяцё́ся, -дзяю́цца. ‖ *наз.* **раздзява́нне**, -я, *н.*

**РАЗДЗЁЎБВАЦЬ** *гл.* раздзяўбці, раздзяўбаць.

**РАЗДЗІРА́ЦЦА** *гл.* разадрацца.

**РАЗДЗІРА́ЦЬ** *гл.* разадраць.

**РАЗДЗЬМУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Дзьмухаючы, прымусіць гарэць; распаліць. *Р. агонь.* ‖ *незак.* **раздзьму́хваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раздзьму́хванне**, -я, *н.*

**РАЗДЗЬМУ́ЦЦА**, -му́ся, -ме́шся, -ме́цца; -мё́мся, -мяцё́ся, -му́цца; -мі́ся; *зак.* **1.** Павялічыцца ў аб'ёме, напоўніўшыся чым-н.; надзьмуцца. *Мяч раздзьмуўся.* **2.** Уздуцца, распухнуць. *Губа раздзьмулася.*

**РАЗДЗЬМУ́ЦЬ**, -му́, -ме́ш, -ме́; -мё́м, -мяцё́, -му́ць; -мі́; -му́ты; *зак., што.* **1.** Дзьмучы, дзьмухнуўшы, развеяць, рассеяць што-н. лёгкае. *Р. пыл.* **2.** Прытокам паветра ўзмацніць гарэнне; распаліць. *Р. жар.* **3.** Напоўніць паветрам; надзьмуць. *Р. ноздры.* ‖ *незак.* **раздзіма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **раздзіма́нне**, -я, *н.*

**РАЗДЗЯВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для раздзявання. *Р. пакой. Прасторная раздзявальная* (наз.).

**РАЗДЗЯВА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж. і* (разм.) **РАЗДЗЯВА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Тое, што і *гардэроб* (у 2 знач.).

**РАЗДЗЯВА́ННЕ** *гл.* раздзець.

**РАЗДЗЯВА́ЦЦА** *гл.* раздзець.

**РАЗДЗЯВА́ЦЬ** *гл.* раздзець.

**РАЗДЗЯЛІ́ЦЦА**, -дзялю́ся, -дзе́лішся, -дзе́ліцца; *зак.* **1.** *гл.* дзяліцца. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Разысціся ў чым-н., выявіць розніцу, не супасці. *Думкі раздзяліліся.* ‖ *незак.* **раздзяля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **раздзяле́нне**, -я, *н.*

**РАЗДЗЯЛІ́ЦЬ**, -дзялю́, -дзе́ліш, -дзе́ліць; -дзе́лены; *зак., каго-што.* **1.** *гл.* дзяліць. **2.** Далучыцца да каго-н., выказаць сваё адзінадушша з кім-н. *Р. сваю радасць з сябрамі.* ‖ *незак.* **раздзяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **раздзяле́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**РАЗДЗЯЛЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які дзеліць што-н., абазначае раздзел, раздзяленне. *Раздзяляльная рыса.* **2.** У граматыцы і логіцы: які выражае або абазначае выбар паміж дзвюма або больш думкамі, магчымасцямі (спец.). *Раздзяляльныя адносіны.*

**РАЗДЗЯЎБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Тое, што і *раздзяўбці.* ‖ *незак.* **раздзёўбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗДЗЯЎБЦІ́**, -дзяўбу́, -дзяўбе́ш, -дзяўбе́; -дзяўбё́м, -дзеўбяцё́, -дзяўбу́ць; -дзёўб, -дзяўбла́, -ло́; -дзяўбі́, -дзёўбаны; *зак., што.* **1.** Дзеўбучы, з'есці, расцягнуць. *Куры раздзяўблі кашу.* **2.** Дзеўбучы, пашкодзіць, разбіць на часткі. ‖ *незак.* **раздзёўбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗДНЕ́ЦЬ**, -е́е; *безас., зак.* Пра наступленне дзённага святла. *Ужо разднела.*

**РАЗДО́БРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). Праявіць дабрату, шчодрасць. ‖ *незак.* **раздо́брывацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗДО́БРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго.* Схіліць каго-н. да дабраты, шчодрасці, добрых учынкаў. ‖ *незак.* **раздо́брываць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗДО́Й** *гл.* раздаіць.

**РАЗДО́ЙВАННЕ** *гл.* раздаіць.

**РАЗДО́ЙВАЦЦА** *гл.* раздаіцца.

**РАЗДО́ЙВАЦЬ** *гл.* раздаіць.

**РАЗДО́ЛЛЕ**, -я, *н.* **1.** Шыр, прастор; шырокая вольная прастора. *Р. неабсяжных палёў.* **2.** Шырокая прастора, якая дае магчымасць свабодна дзейнічаць каму-, чаму-н., праяўляцца чаму-н. (разм.). *Р. птушкам у лесе.* **3.** *перан.* Спрыяльныя, зручныя абставіны; умовы для каго-, чаго-н. *Тут р. для грыбнікоў.*

**РАЗДО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Шырокі, прывольны, раскінуты на вялікай прасторы. *Раздольныя лугі.* **2.** *перан.* Свабодны, лёгкі. *Раздольнае жыццё.* ‖ *наз.* **раздо́льнасць**, -і, *ж.*

**РАЗДО́РВАЦЬ** *гл.* раздарыць.

**РАЗДРАБІ́ЦЦА** *гл.* драбіцца.

**РАЗДРАБІ́ЦЬ**, -раблю́, -ро́біш, -ро́біць, -ро́блены; *зак., што.* **1.** *гл.* драбіць. **2.** Выразіць больш дробнымі адзінкамі. *Р. мет-*

*ры ў сантыметры.* || *незак.* **раздрабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **раздрабле́нне**, -я, *н.*

**РАЗДРАБНІ́ЦЬ**, -рабню́, -ро́бніш, -ро́бніць; -ро́бнены; *зак., што.* **1.** Зрабіць дробным, больш дробным; раскрышыць. *Р. вугаль.* **2.** Раздзяліць на часткі, групы; расчляніць. *Р. сілы праціўніка.* || *незак.* **раздрабня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **раздрабне́нне**, -я, *н.*

**РАЗДРАЖНЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* раздражніць, раздражніцца. **2.** Пачуцце незадаволенасці, злосці. *Сказаць з раздражненнем.*

**РАЗДРАЖНІ́ЦЦА**, -дражню́ся, -дра́жнішся, -дра́жніцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Падвергнуцца ўздзеянню раздражняльніка. *Скура раздражнілася.* **2.** Прыйсці ў стан раздражнення, злосці. **3.** Выклікаць, распаліць у сабе якое-н. жаданне. || *незак.* **раздражня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. || *наз.* **раздражне́нне**, -я, *н.*

**РАЗДРАЖНІ́ЦЬ**, -ражню́, -ра́жніш, -ра́жніць; -ра́жнены; *зак.* **1.** *што.* Выклікаць раздражненне, дзейнічаючы якім-н. раздражняльнікам. *Р. дзясны.* **2.** *каго-што.* Давесці да стану нервовага ўзбуджэння; раззлаваць. *Р. суседа. Р. пчол.* **3.** Выклікаць, распаліць (якое-н. жаданне; разм.). *Р. апетыт.* || *незак.* **раздражня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **раздражне́нне**, -я, *н.*

**РАЗДРАЖНЯ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Фактар, які ўздзейнічае на арганізм, выклікаючы ў ім якую-н. рэакцыю, раздражненне.

**РАЗДРАЖНЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які хутка прыходзіць у стан раздражнення; уразлівы, чуллівы. *Р. чалавек. Р. характар.* **2.** Звязаны з уздзеяннем якога-н. раздражняльніка на арганізм або на асобны орган. *Р. працэс.* || *наз.* **раздражня́льнасць**, -і, *ж.*

**РАЗДРО́БЛЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Разбіты, расколаты на дробныя часткі. *Раздробленая соль.* **2.** Пашкоджаны (пра косць). *Раздробленая косць.* || *наз.* **раздро́бленасць**, -і, *ж.*

**РАЗДРО́БНЕНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *раздроблены* (у 1 знач.). || *наз.* **раздро́бненасць**, -і, *ж.*

**РАЗДРУЖЫ́ЦЦА**, -ружу́ся, -ру́жышся, -ру́жыцца; *зак.* (разм.). Спыніць, перарваць дружбу з кім-н. *Р. з сябрам.*

**РАЗДУ́МАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Больш і лепш падумаць, памеркаваць. *Р. над прапановай.* **2.** Падумаўшы, змяніць ранейшую думку; адумацца. *Раздумаўся, не варта будаваць дачу.*

**РАЗДУ́МАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** Падумаць, усебакова абдумаць. **2.** Перадумаўшы, адмовіцца ад задуманага. *Я раздумаў: не паеду.* || *незак.* **разду́мваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1 знач.).

**РАЗДУ́МВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* раздумаць. **2.** Думаць, вагаючыся; доўга не магчы прыняць рашэнне. *Хопіць р., згаджайся!*

**РАЗДУ́М'Е**, -я, *н.* (разм.). Тое, што і *роздум.*

**РАЗДУ́МЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які часта аддаецца роздуму; разважлівы. *Р. стары чалавек.* **2.** Які робіцца з роздумам, спакойна; які наводзіць на роздум. *Раздумлівая песня.* || *наз.* **разду́млівасць**, -і, *ж.*

**РАЗДУ́РАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Распешчаны, капрызны, свавольны. *Раздуранае дзіця.* **2.** Разбэшчаны, распусны. *Не па гадах р. хлопец.* || *наз.* **разду́ранасць**, -і, *ж.*

**РАЗДУРЫ́ЦЦА**, -дуру́ся, -ду́рышся, -ду́рыцца; *зак.* (разм.). **1.** Стаць вельмі дурлівым, свавольным, непаслухмяным; распусціцца. *Раздурыліся дзеці за лета.* **2.** Пачаць амаральна паводзіць сябе; разбэсціцца.

**РАЗДУРЫ́ЦЬ**, -дуру́, -ду́рыш, -ду́рыць; -ду́раны; *зак., каго.* **1.** Паслабіўшы нагляд, патрабавальнасць, зрабіць каго-н. дурслівым, непаслухмяным. *Р. сына.* **2.** Даць поўную волю каму-н., дазволіць поўнасцю праяўляць свае жаданні, патрабаванні і пад. || *незак.* **разду́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗДУРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які раздурэў, стаў дураслівым, гарэзлівым. *Раздурэлыя дзеці.* || *наз.* **раздурэ́ласць**, -і, *ж.*

**РАЗДУРЭ́ЦЦА**, -э́юся, -э́ешся, -э́ецца; *зак.* (разм.). Пачаць моцна дурэць. *Дзеці раздурэліся, не суняць.*

**РАЗДУРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* (разм.). **1.** Стаць дуроным, непаслухмяным. *Хлопчык зусім раздурэў.* **2.** Распусціцца, разленавацца. *Раздурэў чалавек, не хоча нічога рабіць.*

**РАЗДУШЫ́ЦЬ**, -душу́, -ду́шыш, -ду́шыць; -ду́шаны; *зак., каго-што.* **1.** Моцна націснуўшы, змяць, расплюшчыць. *Р. яйка. Р. ягады.* **2.** Прыціснуўшы чым-н. цяжкім, душачы, забіць або скалечыць. *Р. грудную клетку.* || *незак.* **разду́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗ'Е́ЗД**, -у *і* -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у, *гл.* раз'ехацца. **2.** -у, звычайна *мн.* Паездкі ў розныя месцы. *Ён месяцамі бывае ў раз'ездах.* **3.** -а. Невялікае кавалерыйскае падраздзяленне, якое накіроўваецца для разведкі, аховы, сувязі ва ўмовах ваенных дзеянняў. *Кавалерыйскі р.* **4.** -а. Раздваенне аднакалейнага чыгуначнага пуці. *Цягнік спыніўся на раз'ездзе.* || *прым.* **раз'язны́**, -а́я, -о́е (да 2 і 4 знач.). *Р. конь. Р. пуць.*

**РАЗ'Е́ЗДЗІЦЦА**, -е́зджуся, -е́здзішся, -е́здзіцца; *зак.* (разм.). Пачаць многа і часта ездзіць. *Па вуліцы раз'ездзіліся веласіпедысты.*

**РАЗ'Е́ЗДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што* (разм.). **1.** Частай яздой пракласці, працерці, зрабіць прыгодным для праезду (шлях, дарогу). **2.** Частай яздой разбіць, зрабіць непрыгодным для праезду, язды. || *незак.* **раз'е́зджваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗ'Е́НЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* (разм.). Пачаць моцна енчыць, стагнаць.

**РАЗ'Е́СЦІ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́сць, -яду́ць; раз'е́ў, -е́ла; -е́дзены; *зак., што.* Разбурыць, прычыніць пашкоджанні каму-н. *Кіслата раз'ела скуру.* || *незак.* **раз'яда́ць**, -а́е. || *наз.* **раз'яда́нне**, -я, *н.*

**РАЗ'Е́СЦІСЯ**, раз'е́мся, раз'ясі́ся, раз'е́сца; раз'ядзі́мся, раз'ясцé́ся, раз'яду́цца; раз'е́ўся, -е́лася; раз'е́шся; *зак.* (разм.). Распаўнець ад залішняй, сытай ежы. || *незак.* **раз'яда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Прыстасаванне для ўключэння электрапрыбораў у электрычны ланцуг. **2.** Маленькі сподачак для варэння. **3.** Сабраныя ў пучок стужка, тасьма, шнур і пад., якія служаць упрыгожаннем чаго-н. **4.** Кружок з адтулінай у сярэдзіне, які засцерагае падсвечнік ад капель стэарыну, воску і пад. **5.** Архітэктурнае або мастацкае ўпрыгожанне ў выглядзе кветкі з аднолькавымі пялёсткамі. **6.** Шкляны або папяровы абажур для электрычнай лямпы ў выглядзе раструба. || *прым.* **разе́тачны**, -ая, -ае (да 1, 2, 4—6 знач.).

**РАЗ'Е́ХАЦЦА**, -е́дуся, -е́дзешся, -е́дзецца; -е́дзься; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пакінуць месца знаходжання, ад'язджаючы ў розныя месцы. *Госці раз'ехаліся па хатах.* **2.** Перастаць жыць разам (разм.). **3.** Праязджаючы па адным шляху насустрач адзін аднаму, размінуцца. **4.** Не зачапіць, аб'ехаць адзін аднаго пры сустрэчы. *Машынам цяжка р. на вузкай дарозе.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Слізгаючы па гладкай, коўзкай паверхні, рассунуцца ў розныя бакі. *Ногі раз'ехаліся на лёдзе.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разваліцца ад доўгага ўжытку (разм.). *Табурэтка раз'ехалася.* || *незак.* **раз'язджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. || *наз.* **раз'е́зд**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 і 2 знач.).

**РАЗЕ́Ц**, -зца́, *мн.* -зцы́, -зцо́ў, *м.* **1.** Рэжучы інструмент для апрацоўкі металу, дрэва і іншых цвёрдых матэрыялаў. *Р. скульптара.* **2.** Пярэдні парны зуб плоскай формы. *Сківіца мае чатыры разцы.* **3.** *перан.* Пра майстэрства, манеру, стыль скульптара. *Адразу бачны р. мастака.* || *прым.* **разцо́вы**, -ая, -ае.

**РАЗЖАВА́ЦЬ**, -жую́, -жуе́ш, -жуе́; -жуём, -жуяце́, -жую́ць; -жу́й; -жава́ны; *зак., што.* **1.** Размяць, раздрабіць зубамі. *Р. хлеб.* **2.** *перан.* Вельмі падрабязна растлумачыць, расказаць (разм.). *Р. і гатовае ў рот пакласці.* || *незак.* **разжо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗЖА́ЛАВАЦЬ**, -лую, -луеш, -луе; -луй; -лаваны; *зак., каго (што).* Панізіць у чыне або ў пасадзе за якую-н. правіннасць. *Р. у радавыя.* || *наз.* **разжа́лаванне**, -я, *н.*

**РАЗЖА́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* **1.** Паддацца пачуццю жалю, жаласці. *Р. ад кранальнага апавядання.* **2.** Пачаць занадта жаліцца. *Разжаліўся на свой лёс.* || *незак.* **разжа́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗЖА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Выклікаць у каго-н. пачуццё жалю. || *незак.* **разжа́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗЖАНІ́ЦЦА**, -жанюся, -жэ́нішся, -жэ́ніцца; *зак.* (разм.). Перастаць быць жанатым, развесціся[1]. ‖ *незак.* **разжэ́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗЖАРТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *зак.* (разм.). Пачаць многа і з захапленнем жартаваць. *Разжартаваўся так, што не суняць.*

**РАЗЖЫ́ТАК**, -тку, *м.* (разм.). У выразе: **на разжытак** — для таго, каб даць магчымасць разжыцца, наладзіць жыццё.

**РАЗЖЫ́ЦЦА**, -жыву́ся, -жыве́шся, -жыве́цца; -жывёмся, -жывяце́ся, -жыву́цца; *зак.* (разм.). **1.** *на чым* і *без дап.* Нажыцца, разбагацець. **2.** Пачаць жыць няблага, стаць матэрыяльна забяспечаным. **3.** *на што, чым, чаго.* Дастаць, раздабыць што-н. *Р. на кніжкі.* ‖ *незак.* **разжыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗЗБРО́ІЦЦА**, -ро́юся, -ро́ішся, -ро́іцца; *зак.* **1.** Вызваліцца ад зброі, зняць з сябе зброю, а таксама знішчыць або скараціць узбраенне. **2.** *перан.* Адмовіцца ад актыўных дзеянняў, страціць волю да барацьбы. ‖ *незак.* **раззбро́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **раззбрае́нне**, -я, *н.* *Барацьба за р.*

**РАЗЗБРО́ІЦЬ**, -ро́ю, -ро́іш, -ро́іць; -ро́ены; *зак., каго-што.* **1.** Адабраць у каго-н. зброю, пазбавіць сродкаў узбраення. *Р. палонных.* **2.** *перан.* Пазбавіць магчымасці змагацца, пярэчыць і пад. *Ідэйна р. праціўніка.* ‖ *незак.* **раззбро́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раззбро́йванне**, -я, *н.*

**РАЗЗВАНІ́ЦЬ**, -званю́, -зво́ніш, -зво́ніць; *зак., што, аб чым, пра што* і *з дадан.* (разм.). Расказаць усюды, усім. *Р. навіну. Р. пра свой намер.* ‖ *незак.* **раззво́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗЗЛАВА́ЦЦА** *гл.* злавацца.

**РАЗЗЛАВА́ЦЬ** *гл.* злаваць.

**РАЗЗНАЁМІЦЦА**, -млюся, -мішся, -міцца; *зак.* (разм.). **1.** Спыніць, перарваць знаёмства з кім-н. **2.** Перазнаёміцца з усімі, многімі, пашырыць кола знаёмых. *Р. з многімі ў горадзе.*

**РАЗЗНАЁМІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; *зак., каго* (разм.). **1.** Прывесці да зрыву знаёмства з кім-н. *Р. сяброў.* **2.** Перазнаёміць з усімі, многімі.

**РА́ЗІК** *гл.* раз[1].

**РАЗЛАГО́ДЗІЦЬ**, -го́джу, -го́дзіш, -го́дзіць; *зак., каго* (разм.). Зрабіць лагодным, больш лагодным. *Р. маці.*

**РАЗЛАГО́ДНЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *зак.* (разм.). Паддацца лагоднасці, стаць лагодным, ласкавым.

**РАЗЛА́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** Адсутнасць адзінства, адпаведнасці, згоднасці. *Р. у працы.* **2.** Нязгода, нелады; раздор. *Р. у сям'і.*

**РАЗЛА́ДДЗЕ**, -я, *н.* (разм.). Тое, што і *разлад.*

**РАЗЛА́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ла́дзіцца; *зак.* **1.** Прыйсці ў няспраўнасць. *Машына разладзілася.* **2.** Расстроіцца, парушыцца. *Дружба разладзілася. Вяселле разладзілася.* **3.** Сапсавацца (пра здароўе). ‖ *незак.* **разла́джвацца**, -аецца.

**РАЗЛА́ДЗІЦЬ**, -ла́джу, -ла́дзіш, -ла́дзіць; -ла́джаны; *зак., што.* **1.** Вывесці з рабочага стану (спец.). *Р. станок.* **2.** Расстроіць, парушыць што-н. *Р. справу. Р. вяселле.* **3.** Сапсаваць (пра здароўе). ‖ *незак.* **разла́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗЛАЖЫ́ЦЦА**[1], -лажу́ся, -ло́жышся, -ло́жыцца; *зак.* Тое, што і *раскласціся*[1]. *Разлажыўся са сваімі рэчамі па ўсёй хаце.* ‖ *незак.* **раскладáцца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **раскла́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗЛАЖЫ́ЦЦА**[2], -лажу́ся, -ло́жышся, -ло́жыцца; *зак.* **1.** Тое, што і *раскласціся*[2]. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Распасціся пад уздзеяннем бактэрый, згніць. *Торф яшчэ слаба разлажыўся.* **3.** *перан.* Дайсці да поўнага маральнага падзення; дэзарганізавацца. ‖ *незак.* **разлага́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **разлажэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗЛАЖЫ́ЦЬ**[1], -лажу́, -ло́жыш, -ло́жыць; -ло́жаны; *зак., што.* Тое, што і *раскласці*[1]. *Р. тавар. Р. страту паміж усімі ўдзельнікамі. Р. агонь.* ‖ *незак.* **раскладáць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **раскла́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскладáнне**, -я, *н. і* **раскла́дванне**, -я, *н.*

**РАЗЛАЖЫ́ЦЬ**[2], -лажу́, -ло́жыш, -ло́жыць; -ло́жаны; *зак.* **1.** *што.* Тое, што і *раскласці*[2]. *Р. ваду на кісларод і вадарод.* **2.** *перан., каго (што).* Давесці да маральнага падзення; дэзарганізаваць. *Р. варожую групоўку.* ‖ *незак.* **раскладáць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **раскла́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскладáнне**, -я, *н.* (да 1 знач.), **раскла́дванне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **разлажэ́нне**, -я, *н.* *Маральнае р.*

**РАЗЛАЙДА́ЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* (разм.). Разленавацца, стаць гультаём.

**РАЗЛАМА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ло́міцца; *зак.* **1.** Пры ломцы, удары распасціся на кавалкі. *Льдзіна разламалася.* **2.** Разбурыцца, разваліцца, зламацца (разм.). *Плот разламаўся.*

**РАЗЛАМА́ЦЬ**, -ламлю́, -ло́міш, -ло́міць; -ламі́; -ламáны; *зак., што.* **1.** Ламаючы, падзяліць на часткі, на кавалкі. *Р. крэсла.* **2.** Разбурыць, развaліць. *Р. дзверы.* ‖ *незак.* **разло́мліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **разло́мваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разло́м**, -у, *м.*, **разло́мліванне**, -я, *н. і* **разло́мванне**, -я, *н.*

**РАЗЛАПАТА́ЦЦА**, -пачу́ся, -по́чашся, -по́чацца; -пачы́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць моцна лапатаць (крыламі). **2.** Разгаварыўшыся, пачаць несупынную гаворку, стаць балбатлівым (разм.).

**РАЗЛА́ПІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). Які шырока раскінуў свае галіны ў розныя бакі (пра дрэвы, галлё). *Разлапістыя елкі.* ‖ *наз.* **разла́пістасць**, -і, *ж.*

**РАЗЛАПУШЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шы́цца; *зак.* (разм.). Буйна, шырока разрасціся. *Разлапушылася кукуруза.*

**РАЗЛА́САВАНЫ**, -ая, -ае. Які разласаваўся, стаў вельмі ласы.

**РАЗЛА́САВАЦЦА**, -суюся, -суешся, -суецца; -суйся; *зак.* (разм.). **1.** Стаць вельмі ласым; паспрабаваўшы смачнага, захацець яшчэ. *Р. мёдам.* **2.** *перан.* Тое, што і *разахвоціцца* (у 1 знач.).

**РАЗЛА́САВАЦЬ**, -сую, -суеш, -суе; -суй; -саваны; *зак., каго (што)* (разм.). **1.** Узбудзіць у кім-н. жаданне паласавацца. *Р. дзіця малінамі.* **2.** *перан.* Распаліць, узмацніць у кім-н. ахвоту да чаго-н. *Лёгкая нажыва разласавала яго.*

**РАЗЛАХМА́ЦІЦЦА** *гл.* лахмаціцца.

**РАЗЛАХМА́ЦІЦЬ** *гл.* лахмаціць.

**РАЗЛЕ́ГЛАСЦЬ**, -і, *ж.* Даль, прастора, раздолле. *Касцёл быў відзен на ўсю р.*

**РАЗЛЕ́ГЧЫСЯ**, -ля́гуся, -ля́жашся, -ля́жацца; разлёгся, -ляглáся, -ло́ся *і* -ле́глася; разля́жся; *зак.* (разм.). **1.** Легчы, свабодна раскінуўшыся, разваліўшыся. *Р. на траве пад дубам.* **2.** *перан.* Заняць вялікую прастору; раскінуцца. *Блакітнае мора льну разлеглася на гарызонце.* ‖ *незак.* **разляга́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗЛЕ́ЖВАЦЦА** *гл.* разляжацца.

**РАЗЛЕ́ЗЛЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які падраўся, пранасіўся, разваліўся (пра адзенне, тканіну і пад.). *Р. мех. Чаравікі мелі р. выгляд.* **2.** Вельмі прамоклы, размоклы; раскіслы. *Разлезлая папера.* **3.** Які страціў фігуру, празмерна растаўсцеўшы; распоўзлы. *Яго постаць здавалася нейкай бясформеннай, разлезлай.* ‖ *наз.* **разле́злaсць**, -і, *ж.*

**РАЗЛЕ́ЗЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ле́зецца; разле́зся, -ле́злася; *зак.* (разм.). Распасціся, разваліцца, звычайна намокшы. *Папера размокла і разлезлася.*

**РАЗЛЕНАВА́ЦЦА**, -ляну́юся, -ляну́ешся, -ляну́ецца; -ляну́йся; *зак.* Стаць зусім лянівым, страціць ахвоту працаваць. *Р. за час адпачынку.*

**РАЗЛЁТ**, -у, *М* -лёце, *м.* **1.** *гл.* разлятацца. **2.** Адлёт птушак у цёплыя краіны. *Р. птушак.* **3.** Контур, абрысы чаго-н. у выглядзе раскінутых, прыўзнятых крылаў. *Р. броваў.* **4.** Разгон, рух з паступова нарастаючай скорасцю; скорасць, набраная такім палётам, рухам. *Ударыцца з разлёту.* ‖ *прым.* **разлётны**, -ая, -ае (да 2—4 знач.).

**РАЗЛІВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для разлівання чаго-н. *Разлівальная лыжка.*

**РАЗЛІ́ВАЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які прызначаны для разліўкі чаго-н. *Р. пункт.*

**РАЗЛІ́К**, -у, *м.* **1.** *гл.* разлічыць, разлічыцца. **2.** Плата за работу, паслугі і пад. **3.** Намер, меркаванне. *Хітры р.* **4.** Карыслівыя намеры, меркаванні. *Матэрыяльныя разлікі.* **5.** Расплата, пакаранне. *Р. будзе суровы.* **6.** Беражлівасць у расходаванні сродкаў. *Жыць з разлікам.* **7.** Група байцоў, якая абслугоўвае гармату, мінамёт, кулямёт і пад. *Мінамётны р.* ◊ **Брацца (прымацца) у разлік** — улічвацца, брацца пад увагу. **Браць (узяць) у разлік** — улічваць (улічыць), прымаць (прыняць) пад увагу. **Звесці разлікі** *з кім* — 1) узаемна разлічыцца грашамі; 2) адпомсціць каму-н. за аб-

разу, знявагу. ‖ *прым.* **разлікóвы**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Р. месяц.*

**РАЗЛІКÓВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* разлік. **2.** Які служыць для падлікаў, для абазначэння вылічэнняў. *Разліковая табліца.* **3.** Прызначаны для ўліку грашовых сродкаў, правядзення плацяжоў і іншых грашовых разлікаў. *Р. банк.*

**РАЗЛІНÉІЦЬ**, -éю, -éіш, -éіць; -éены; *зак., што.* Правесці на паперы лініі для пісання па іх або паміж імі. *Р. ліст паперы.* ‖ *незак.* **разлінéйваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разлінéйванне**, -я, *н.*

**РАЗЛІТАВÁЦЬ**, -тýю, -тýеш, -тýе; -тýй; -тавáны; *зак., што* (уст.). Распаяць. ‖ *незак.* **разлітóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разлітóўванне**, -я, *н.*

**РАЗЛÍТЫ**, -ая, -ае (спец.). Які ахапіў вялікую паверхню чаго-н. *Р. бранхіт. Разлітае пачырваненне.*

**РАЗЛÍЎ**, -ліву, *м.* **1.** *гл.* разліць, разліцца. **2.** Тое, што і *паводка. Р. Дняпра.* ‖ *прым.* **разліўны**, -ая, -ае.

**РАЗЛІЎНЫ́**, -áя, -óе. **1.** Які служыць, прызначаны для разліву (у 1 знач.). *Р. апарат.* **2.** Які прадаецца на разліў (у 1 знач.), які наліваецца ў посуд пакупнікоў. *Р. квас.*

**РАЗЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., разальéцца *і* разліéцца; разліўся, -лілáся, -лóся; разлíся; *зак.* **1.** Выліцца часткова або поўнасцю; расплюхацца. *Малако разлілося.* **2.** Размеркавацца па розных пасудзінах (пра вадкасць). **3.** Заліць якую-н. прастору, паверхню чаго-н., расцячыся; выйсці з берагоў. *Рака разлілася.* **4.** *перан.* Разысціся, разнесціся ва ўсе бакі, па ўсёй прасторы чаго-н., у межах чаго-н. *Разлілася песня ў прасторы.* ‖ *незак.* **разлівáцца**, -áецца. ‖ *наз.* **разлíў**, -ліву, *м.* (да 2—4 знач.) *і* **разліццё**, -я́, *н.* (да 1—3 знач.). *Разліццё жоўці.*

**РАЗЛІ́ЦЬ**, разальó, разальéш, разальé; разальём, разальяцé, разальюць *і* разлíю, разліéш, разліé; разліём, разліяцé, разлíюць; разлíў, -лілá; -лó; разлí; -лíты; *зак., што.* **1.** Выліць часткова або поўнасцю; расплюхаць. *Р. малако.* **2.** Пераліць якую-н. вадкасць з адной пасудзіны ў некалькі іншых. *Р. віно ў шклянкі.* **3.** *безас.* Прымусіць выйсці з берагоў. *Рэчку разліло вельмі шырока.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Распаўсюдзіць ва ўсе бакі, па ўсёй прасторы чаго-н., у межах чаго-н. *Сонца разліло святло па зямлі.* ◊ **Вадой не разліць (не разальеш)** *каго* — пра неразлучных сяброў. ‖ *незак.* **разлівáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **разлíў**, -ліву, *м.* (да 2 знач.), **разліўка**, -і, *ДМ* -ліўцы, *ж.* (да 2 знач.), **разлівáнне**, -я, *н. і* **разліццё**, -я́, *н.* (да 2 знач.).

**РАЗЛÍЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* разлічыць. **2.** Меркаваць, мець намер; спадзявацца. *Р. на дапамогу.* ‖ *наз.* **разлíчванне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**РАЗЛІЧЫ́ЦЦА**, -лічýся, -лíчышся, -лíчыцца; *зак.* **1.** *з кім.* Цалкам расплаціцца з кім-н. *Р. з крэдыторамі.* **2.** *перан., з кім.* Адпомсціць каму-н. за што-н.; звесці рахункі з кім-н. *Р. з крыўдзіцелем.* **3.** Звольніцца, узяць разлік (разм.). *Р. на рабоце.* **4.** Зрабіць разлік у страі. *Па парадку нумароў разлічыся!* ‖ *незак.* **разлíчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **разлíк**, -у, *м.*

**РАЗЛІЧЫ́ЦЬ**, -лічý, -лíчыш, -лíчыць; -лíчаны; *зак., каго-што* і *з дадан.* **1.** Правёўшы падлік, вызначыць размер, колькасць чаго-н. *Р. кошт будаўніцтва дома. Р. канструкцыю.* **2.** і *без дап.* Прадугледзець, вызначыць, рашыць. *Р. свае магчымасці.* **3.** Зрабіўшы поўную выплату зробленых грошай, звольніць. *Р. з завода.* **4.** Правесці разлік у страі. **5.** *на што, для чаго* (звычайна ў форме дзеепр. зал. прош.). Зрабіць што-н. для таго, каб выклікаць пэўную рэакцыю, вынікі. *Новы падыход у рабоце быў разлічаны на добрыя вынікі.* ‖ *незак.* **разлíчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разлíк**, -у, *м.*

**РАЗЛÓГ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м. і* **РАЗЛÓГА**, -і, *ДМ* -лóзе, *мн.* -і, -лóг, *ж.* Абшар, адкрытая прастора. *Паўз Прыпяць цягнуліся пясчаныя разлогі.*

**РАЗЛÓГІ**, -ая, -ае. Шырокі, з вялікаю кронай, раскідзісты. *Р. дуб.* ‖ *наз.* **разлóгасць**, -і, *ж.*

**РАЗЛÓЖЫСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Развесісты, раскідзісты, шырокі (пра дрэвы, крону, галіны і пад.). *Разложыстая ліпа.* **2.** Шырокі, пакаты; адкрыты, роўны. *Р. луг.* ‖ *наз.* **разлóжыстасць**, -і, *ж.*

**РАЗЛÓМ**, -у, *м.* **1.** *гл.* разламаць. **2.** *перан.* Парушэнне ўнутранага адзінства; раздвоенасць, надломленасць. *Душэўны р.*

**РАЗЛÓМВАННЕ** *гл.* разламаць.

**РАЗЛÓМВАЦЬ** *гл.* разламаць.

**РАЗЛÓМЛІВАННЕ** *гл.* разламаць.

**РАЗЛÓМЛІВАЦЬ** *гл.* разламаць.

**РАЗЛУЗÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што.* Раскрыць (абалонку), каб дастаць семя; разлушчыць. *Р. арэх.* ‖ *незак.* **разлýзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗЛÝКА**, -і, *ДМ* -лýцы, *ж.* **1.** *гл.* разлучыцца. **2.** Растанне з кім-н. родным, блізкім. *Р. з родным домам.*

**РАЗЛУПÍЦЬ**, -луплю́, -лýпіш, -лýпіць; -лýплены; *зак., што* (разм.). **1.** Разадраць на палосы, распаласаваць што-н.; падраць. *Р. кашулю.* **2.** Нанесці рану, глыбокую драпіну. *Зачапіўся за сук і разлупіў скуру на назе.* ‖ *незак.* **разлýплівацъ**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗЛУЧÁЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *раз'яднальнік.*

**РАЗЛÝЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто разлучыў, разлучае блізкіх адзін аднаму людзей. ‖ *ж.* **разлýчніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**РАЗЛУЧЫ́ЦЦА**, -лучýся, -лýчышся, -лýчыцца; *зак.* **1.** *з кім* і *без дап.* Расстацца, перастаць быць разам (пра блізкіх, сяброў). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раз'яднацца (пра што-н. злучанае). *Правады разлучыліся.* ‖ *незак.* **разлучáцца**, -áюся, -áешся, -áецца. ‖ *наз.* **разлýка**, -і, *ДМ* -лýцы, *ж. і* **разлучэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗЛУЧЫ́ЦЬ**, -лучý, -лýчыш, -лýчыць; -лýчаны; *зак., каго-што.* **1.** Прымусіць расстацца (блізкіх, сяброў); разысціся. *Вайна разлучыла родных.* **2.** Раздзяліць, адрзяліць што-н. ад чаго-н. *Р. канцы правадоў.* ‖ *незак.* **разлучáць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **разлучэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗЛÝШЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Раскрыць (абалонку), расцерабіць, каб дастаць семя. *Р. арэх.* ‖ *незак.* **разлýшчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗЛЫГÁЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *зак.* Вызваліцца ад вяроўкі, якой быў залыганы; развязацца. *Конь разлыгаўся.* ‖ *незак.* **разлы́гвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗЛЫГÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што.* Зняць вяроўку з таго, хто быў залыганы. ‖ *незак.* **разлы́гваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разлы́гванне**, -я, *н.*

**РАЗЛЮБÍЦЬ**, -люблю́, -лю́біш, -лю́біць; -лю́блены; *зак., каго-што.* Перастаць любіць каго-, што-н. *Р. жонку.*

**РАЗЛЮТАВÁЦЦА**, -тýюся, -тýешся, -тýецца; -тýйся; *зак.* Прыйсці ў лютасць, дайсці да крайняй ступені жорсткасці; раз'юшыцца. *Мачыха так разлютавалася, што нельга было суняць.*

**РАЗЛЮТАВÁЦЬ**, -тýю, -тýеш, -тýе; -тýй; -тавáны; *зак., каго.* Прывесці ў лютасць. *Разлютавалі несправядлівыя нападкі.*

**РАЗЛЯГÁЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* **1.** *гл.* разлегчыся. **2.** Поўніцца звонкімі, пераліўістымі гукамі. *Лес разлягаецца ад галасоў дзетвары.*

**РАЗЛЯЖÁЦЦА**, -жýся, -жы́шся, -жы́цца; -жы́мся, -лежыцéся, -жáцца; -жы́ся; *зак.* (разм.). Праляжаць вельмі доўга; праляжаўшы доўгі час, захацець ляжаць яшчэ даўжэй. ‖ *незак.* **разлéжвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗЛЯЙЦÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго.* Вызваліць ад лейцаў. *Р. каня.*

**РАЗЛЯ́ПАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). **1.** Пачаць моцна і доўга ляпаць. *Р. на ўсю ваколіцу.* **2.** Распырскацца, раскідацца.

**РАЗЛЯ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -е; *зак.* Раскідаць што-н. густое, ліпкае.

**РАЗЛЯПÍЦЬ**, -ляплю́, -лéпіш, -лéпіць; -лéплены; *зак., што.* **1.** Раз'яднаць тое, што зляпілася. *Не р. лісты ў кнізе.* **2.** Наляпіць, прыляпіць у многіх месцах. *Р. афішы.* ‖ *незак.* **разлéпліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **разляплі́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**РАЗЛЯТÁЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -тáек, *ж.* Крылатка або наогул якое-н. верхняе адзенне са свабоднымі, без зашпілек поламі.

**РАЗЛЯТÁЦЦА**[1], -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* **1.** *гл.* разляцецца. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Развявацца ў бакі ад павеваў ветру. *Валасы разляталіся ад ветру.*

**РАЗЛЯТÁЦЦА**[2], -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* (разм.). Пачаўшы лятаць, захапіцца лятаннем, палётамі; разлётацца. *Ластаўкі разляталіся. Самалёты разляталіся.*

**РАЗЛЯЦЕ́ЦЦА**, -лячу́ся, -ляці́шся, -ляці́цца; -ляці́мся, -лецiце́ся, -ляця́цца; -ляці́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паляцець у розныя бакі. *Птушкі разляцеліся.* **2.** *перан.* Раз'ехацца ў розныя бакі, па розных месцах. *Дзеці выраслі і разляцеліся з роднага дому.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Разбіцца, распасціся на часткі, кавалкі ад удару, узрыву. *Талерка разляцелася ўшчэнт.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Знікнуць, аказацца нерэальным (разм.). *Усе мае мары разляцеліся.* **5.** У палёце або на бягу набраць вялікую хуткасць (разм.). *Ён так разляцеўся, што не дагнаць.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Хутка распаўсюдзіцца, зрабіцца вядомым многім. *Па вёсцы хутка разляцеліся чуткі.* ‖ *незак.* **разлята́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **разлёт**, -у, *М* -лёце, *м.* (да 1 знач.).

**РАЗМАГНІ́ЦІЦЦА**, -ні́чуся, -ні́цішся, -ні́ціцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пазбавіцца магнітных уласцівасцей. *Сталь размагніцілася.* **2.** *перан.* Пра чалавека: пазбавіцца сабранасці, стаць бязвольным, бяздзейным (разм.). ‖ *незак.* **размагні́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗМАЖДЖЭ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* (разм.). Моцна ўдарыўшы, раздрабіць. *Р. галаву.* ‖ *незак.* **размажджэ́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗМА́ЗАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ма́жацца; *зак.* Распаўсюдзіцца па ўсёй паверхні (пра тое, што мажа, фарбуе). *Фарба размазалася па паперы.* ‖ *незак.* **разма́звацца**, -аецца.

**РАЗМА́ЗАЦЬ**, -ма́жу, -ма́жаш, -ма́жа; -ма́ж; -ма́заны; *зак., што.* **1.** Разнесці, расцерці па якой-н. паверхні, мажучы, пэцкаючы яе. *Р. гразь па падлозе.* **2.** *перан. і без дап.* З лішнімі падрабязнасцямі, адступленнямі расказаць, апісаць што-н. (разм.). ‖ *незак.* **разма́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗМАЗНЯ́**, -і́, *ж.* (разм.). **1.** Рэдкая каша. *Кармілі нас нейкай размазнёй.* **2.** *м. і ж.* Аб вялым, нерашучым, слабавольным чалавеку (неадабр.). *Не хлопец, а р.*

**РАЗМАКА́ЦЬ** *гл.* размокнуць.

**РАЗМАЛАЦІ́ЦЬ**, -лачу́, -ло́ціш, -ло́ціць; -ло́чаны; *зак., што* (разм.). Разбіць, разламаць. *Р. акно.*

**РАЗМАЛО́ЦЬ**, -мялю́, -ме́леш, -ме́ле; -мялі́; -мо́латы; *зак., што.* Расцерці на муку, парашок. *Р. зерне.* ‖ *незак.* **размо́лваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **размо́л**, -у, *м. і* **размо́лванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **размо́льны.**

**РАЗМАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *зак., каго-што.* **1.** Пакрыць球 рознымі, звычайна каляровымі фарбамі. *Р. талерку.* **2.** *перан.* Нарабіць сінякоў каму-н. (разм.). *Размалявалі твар у бойцы.* **3.** *перан.* Паказаць у прыхарошаным выглядзе, перабольшыць значэнне чаго-н. *Ён умеў р. самую звычайную гісторыю.* ‖ *незак.* **размалёўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **размалёўванне**, -я, *н. і* **размалёўка**, -і, *ДМ* -лёўцы, *ж.*

**РАЗМАРО́ЗІЦЬ**, -ро́жу, -ро́зіш, -ро́зіць; -ро́жаны; *зак., каго-што.* **1.** Вывесці з замарожанага стану, даць магчымасць адтаць чаму-н. *Р. халадзільнік.* **2.** *перан.* Зноў пусціць у абарот, у эксплуатацыю (сродкі, запасы сыравіны і пад.). *Р. крэдыты.* ‖ *незак.* **размаро́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗМАРЫ́Н**, -у, *м.* **1.** Паўднёвая вечназялёная расліна сямейства губакветных, з якой здабываюць эфірны алей. **2.** Гатунак яблыкаў. ‖ *прым.* **размары́навы**, -ая, -ае.

**РАЗМАРЫ́ЦЦА**, -мару́ся, -мо́рышся, -мо́рыцца; *зак.* (разм.). Знемагчыся (ад спёкі, духаты або стомы). *Р. на сонцы.*

**РАЗМАРЫ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -мо́рыць; -мо́раны; *зак., каго* (разм.). Давесці да расслабленага, санлівага стану. *Духмянае сена размарыла касцоў.* ‖ *незак.* **размо́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗМАТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Пра што-н. наматанае, зматанае: развіцца, раскруціцца. *Супоня размоталася і павісла.*

**РАЗМАТА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Развіць, раскруціць што-н. зматанае; зняць з таго, на што было наматана. *Р. вуду.* ◊ **Разматаць клубок** — высветліць, разблытаць якую-н. складаную, заблытаную справу. ‖ *незак.* **размо́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **размо́тванне**, -я, *н. і* **размо́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**РАЗМАТА́ЦЬ**[2] *гл.* матаць[2].

**РАЗМАТЛАШЫ́ЦЬ**, -лашу́, -ло́шыш, -ло́шыць; -ло́шаны; *зак., што* (разм.). **1.** Падраць на шматкі; разнесці па частках, на часткі. *За адзін сезон разматлашыў касцюм. Р. склад.* **2.** Давесці да бязладнага стану; зрабіць раскудлачаным, растрапаным.

**РАЗМАЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* Весці размову, гутарку; гаварыць з кім-н. *Р. усю дарогу.*

**РАЗМА́Х**, -у, *м.* **1.** *гл.* размахнуцца. **2.** Велічыня хістання, вагання якога-н. цела; амплітуда. *Р. маятніка.* **3.** Адлегласць паміж крайнімі пунктамі чаго-н. разгорнутага, распасцёртага, разнятага. *Р. крылаў.*

**РАЗМАХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). Пачаць моцна махаць чым-н. *Р. кулакамі.*

**РАЗМА́ХВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Махаць чым-н. то ў адзін, то ў другі бок. *Р. рукамі.*

**РАЗМАХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Зрабіць узмах рукой для ўдару, кідання і пад. **2.** *перан.* Вызначыцца шырынёй, смеласцю ва ўчынках, паўнатой праяўлення якой-н. дзейнасці (разм.). *Бацька жаніў сына, ды так размахнуўся, што паўсвету заклікаў гасцей.* ‖ *незак.* **разма́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **разма́х**, -у, *м. Шырокі р. Р. будаўніцтва.*

**РАЗМАЧА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Растрапаць, раздзяліць на валокны. *Р. канец вяроўкі.* ‖ *незак.* **размача́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗМАЧЫ́ЦЬ**, -мачу́, -мо́чыш, -мо́чыць; -мо́чаны; *зак., што.* Намачыўшы, зрабіць мяккім, разбухлым. *Р. сухары.* ◊ **Размачыць лік** (разм.) — адкрыць лік (у спартыўнай гульні). ‖ *незак.* **размо́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **размо́чванне**, -я, *н. і* **размо́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.*

**РАЗМА́ШЫСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вызначаецца шырокімі, свабоднымі ўзмахамі рук або ног. *Размашыстыя крокі.* **2.** Буйны, разгоністы (пра почырк). **3.** Раскідзісты, з вялікім размахам (у 3 знач.). *Размашыстыя галіны дуба.* ‖ *наз.* **разма́шыстасць**, -і, *ж.*

**РАЗМЕЖАВА́ЦЦА**, -мяжу́юся, -мяжу́ешся, -мяжу́ецца; -мяжу́йся; *зак.* **1.** Раздзяліцца, устанавіўшы межы паміж землямі, уладаннямі. *Р. з суседзямі.* **2.** *перан.* Аддзяліцца, адасобіцца адзін ад аднаго ў выніку несупадзення, працілегласці інтарэсаў, поглядаў. *Р. з ідэйнымі праціўнікамі.* ‖ *незак.* **размяжо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *наз.* **размяжо́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **размежава́нне**, -я, *н.*

**РАЗМЕЖАВА́ЦЬ**, -мяжу́ю, -мяжу́еш, -мяжу́е; -мяжу́й; -межава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Раздзяліць, правёўшы межы. *Р. участкі.* **2.** *перан.* Аддзяліць, адмежаваць сферы дзейнасці. *Р. абавязкі.* ‖ *незак.* **размяжо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **размяжо́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **размежава́нне**, -я, *н.*

**РАЗМЕ́Н** *гл.* размяніць, размяняцца, размяняць.

**РАЗМЕ́ННЫ** *гл.* размяняць.

**РАЗМЕ́НЬВАЦЦА** *гл.* размяняцца.

**РАЗМЕ́НЬВАЦЬ** *гл.* размяніць, размяняць.

**РАЗМЕ́Р**, -у, *м.* Тое, што і *памер.* ‖ *прым.* **разме́рны**, -ая, -ае.

**РАЗМЕ́РАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Мераючы, вызначыць межы, падзяліць на часткі згодна з велічынёй чаго-н. *Р. зямлю.* ‖ *незак.* **разме́рваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **размяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗМЕРКАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Асоба, якая размяркоўвае што-н. **2.** Установа, якая ведае размеркаваннем каго-н. (раненых па шпіталях, дзяцей-сірот па дзіцячых дамах). **3.** Магазін, які адпускае тавары па пэўных нормах (уст.). **4.** Прыстасаванне для размеркавання электрычнага току, газу, вады і пад. *Р. электраэнергіі.*

**РАЗМЕРКАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для размеркавання чаго-н. *Р. пункт.*

**РАЗМЕРКАВА́ЦЬ**, -мярку́ю, -мярку́еш, -мярку́е; -мярку́й; -меркава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Раздзяліць, падзяліць паміж кім-, чым-н., вызначыўшы кожнаму пэўную частку. *Р. прэмію.* **2.** Вызначыць паслядоўнасць чаго-н., размясціць у якой-н. паслядоўнасці. *Р. вучняў па класах.* **3.** Мяркуючы, падлічыць, вырашыць. *Правільна р. сямейны бюджэт.* **4.** Пра маладых спецыялістаў: накіраваць на працу пасля заканчэння навучальнай установы. ‖ *незак.* **размяркоўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.*

**размяркоўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **размеркава́нне**, -я, *н.*

**РАЗМЕ́СЦІ**, -мяту́, -мяце́ш, -мяце́; -мяцём, -мецяце́, -мяту́ць; размёў, -мяла́, -мяло́; -мяці́; -ме́цены; *зак., каго-што.* **1.** Метучы, расчысціць што-н. (ад чаго-н.). *Р. снег. Ветрам размяло* (безас.) *сухое лісце.* **2.** *перан.* Разагнаць, раскідаць. *Вайна размяла нас па свеце.* **3.** *перан.* Расхапаць, разабраць. *Р. тавары за адзін дзень.* ‖ *незак.* **размята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗМЕ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст, які займаецца разметкай чаго-н. *Р. дэталей.* ‖ *ж.* **разме́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**РАЗМЕ́ЦІЦЬ**, -ме́чу, -ме́ціш, -ме́ціць; -ме́чаны; *зак., што.* Расставіць значкі, меткі. *Р. шрыфты.* ‖ *незак.* **размяча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **разме́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.*; *прым.* **разме́тачны**, -ая, -ае. *Р. інструмент.*

**РАЗМЕ́ШВАННЕ** *гл.* размяшаць.

**РАЗМЕ́ШВАЦЬ** *гл.* размяшаць.

**РАЗМІНА́ЦЦА** *гл.* размяцца.

**РАЗМІНА́ЦЬ** *гл.* размяць.

**РАЗМІ́НАЧНЫ** *гл.* размінка, размяцца.

**РАЗМІНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* Ачысціць (ачышчаць) ад мін. *Р. участак.* ‖ *наз.* **размініраванне**, -я, *н.*

**РАЗМІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* размяць, размяцца. **2.** Фізічныя практыкаванні перад спартыўнымі выступленнямі або перад трэніроўкай. *Р. гімнастаў.* ‖ *прым.* **размі́начны**, -ая, -ае.

**РАЗМІНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Ідучы адзін аднаму насустрач, не сустрэцца; разысціся. *Р. з сябрам.* **2.** Разысціся пры сустрэчы, не дакрануўшыся адзін да аднаго, не зачапіўшы адзін аднаго. *На вузкай дарозе машыны ледзь размінуліся.* ‖ *незак.* **разміна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗМНАЖА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* размножыцца. **2.** Аднаўляць патомства (пра раслінныя і жывёльныя арганізмы). *Рыбы размнажаюцца ікрой.*

**РАЗМНО́ЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *зак.* **1.** Павялічыцца ў колькасці, ліку. **2.** Распладзіцца, развесціся (пра раслінныя і жывёльныя арганізмы). *Размножыліся бабры.* ‖ *незак.* **размнажа́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **размнажэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗМНО́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., каго-што.* **1.** Павялічыць колькасна. *Р. тэкст даклада.* **2.** Распладзіць, развесці. *Р. каштоўную пароду коней.* ‖ *незак.* **размнажа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **размнажэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗМО́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -мо́ў, *ж.* **1.** Слоўны абмен з кім-н. звесткамі, думкамі; гутарка. *Завесці размову з сябрам. Р. па тэлефоне.* **2.** *мн.* Чуткі, абгаворы, плёткі. *Пра хлопца хадзіла многа размоў па вёсцы.* **3.** Мова, гаворка, вымаўленне (разм.). *Па размове лёгка вызначыць, адкуль чалавек родам.* ‖ *прым.* **размо́ўны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Размоўная інтанацыя.*

**РАЗМО́КЛЫ**, -ая, -ае. Які размок, размяк ад вільгаці, разбух. *Р. гарох.*

**РАЗМО́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; размо́к, -кла; *зак.* Набраўшы вільгаці, разбухнуць, размякнуць. ‖ *незак.* **размака́ць**, -а́е.

**РАЗМО́Л**, -у, *м.* **1.** *гл.* размалоць. **2.** Спосаб, якасць мліва. *Мука тонкага размолу.*

**РАЗМО́ЛВАННЕ** *гл.* размалоць.

**РАЗМО́ЛВАЦЬ** *гл.* размалоць.

**РАЗМО́ЛЬНЫ** *гл.* размалоць.

**РАЗМО́РВАЦЬ** *гл.* размарыць.

**РАЗМО́ТВАННЕ** *гл.* разматаць[1].

**РАЗМО́ТВАЦЬ** *гл.* разматаць[1].

**РАЗМО́ТКА** *гл.* разматаць[1].

**РАЗМО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Дапаможнік для размовы з іншаземцамі з узорамі дыялогаў на бытавыя і іншыя тэмы.

**РАЗМО́ЧВАННЕ** *гл.* размачыць.

**РАЗМО́ЧВАЦЬ** *гл.* размачыць.

**РАЗМО́ЧКА** *гл.* размачыць.

**РАЗМЫ́ВІНА**, -ы, *мн.* -ы, -він, *ж.* Яма, паглыбленне, размытае вадой.

**РАЗМЫКА́ННЕ** *гл.* разамкнуцца.

**РАЗМЫКА́ЦЦА** *гл.* разамкнуцца.

**РАЗМЫКА́ЦЬ** *гл.* разамкнуць.

**РАЗМЫ́Ў**, -мы́ву, *м.* **1.** *гл.* размыць. **2.** Месца, размытае вадой.

**РАЗМЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -мы́ецца; *зак.* Разбурыцца пад дзеяннем вады, плыні. *Бераг паступова размыўся.* ‖ *незак.* **размыва́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **размы́ў**, -мы́ву, *м.*

**РАЗМЫ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -мы́е; -мы́ты; *зак., што.* Разбурыць плынню, вадою. *Рака размыла бераг.* ‖ *незак.* **размыва́ць**, -а́е. ‖ *наз.* **размыва́нне**, -я, *н.* і **размы́ў**, -мы́ву, *м.*

**РАЗМЯЖО́ЎВАННЕ** *гл.* размежавацца.

**РАЗМЯЖО́ЎВАЦЦА** *гл.* размежавацца.

**РАЗМЯЖО́ЎВАЦЬ** *гл.* размежаваць.

**РАЗМЯ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; размя́к, -кла; -ні; *зак.* **1.** *гл.* мякнуць. **2.** *перан.* Стаць вялым, расслабіцца, а таксама прыйсці ў стан чуллівасці. *Р. ад пахвалы.* ‖ *незак.* **размяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗМЯКЧЫ́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца; *зак.* **1.** Стаць мяккім, размякнуць пад уздзеяннем чаго-н. *Пластылін размякчыўся ў цяпле.* **2.** *перан.* Прыйсці ў стан душэўнай лагоднасці, стаць ласкавым, добрым. ‖ *незак.* **размякча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **размякчэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗМЯКЧЫ́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; размя́кчаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць мяккім. *Р. воск.* **2.** *перан., каго-што.* Прывесці ў стан душэўнай мяккасці. *Р. сэрца ласкай.* ‖ *незак.* **размякча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **размякчэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗМЯНІ́ЦЬ**, -мяню́, -ме́ніш, -ме́ніць; -ме́нены; *зак., што.* Тое, што і *размяняць* (у 1 знач.). ‖ *незак.* **разме́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разме́н**, -у, *м.*

**РАЗМЯНЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *зак.* **1.** Абмяняцца чым-н. падобным, аднародным. *Р. шапкамі.* **2.** У шахматнай гульні: зрабіць размен фігур. *Р. сланамі.* **3.** Пра тых, хто жыве разам: раз'ехацца, падзяліўшы агульную жылую плошчу. ‖ *незак.* **разме́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ◊ **Разменьвацца на дробязі** — расходаваць свае сілы, здольнасці на дробныя справы. ‖ *наз.* **разме́н**, -у, *м.* (да 1, 2 і 4 знач.). *Р. фігур у шахматнай гульні.*

**РАЗМЯНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *што.* Абмяняць адны грашовыя купоны або манеты на больш дробныя ў адпаведнай колькасці. *Р. сто рублёў.* **2.** Пра гады. *Р. пяты дзясятак.* **3.** *каго-што.* Абмяняць каго-, што-н. на другое падобнае або на другога падобнага. *Р. кватэру. Р. палонных.* ‖ *незак.* **разме́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разме́н**, -у, *м.*; *прым.* **разме́нны**, -ая, -ае. *Разменныя манеты.*

**РАЗМЯРКО́ЎВАННЕ** *гл.* размеркаваць.

**РАЗМЯРКО́ЎВАЦЬ** *гл.* размеркаваць.

**РАЗМЯСІ́ЦЬ**, -мяшу́, -ме́сіш, -ме́сіць; -ме́шаны; *зак., што.* Перамяшаўшы, размяць (што-н. густое, вязкае). *Р. цеста.* ‖ *незак.* **разме́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разме́шванне**, -я, *н.* і **разме́ска**, -і, *ДМ* -ме́сцы, *ж.*; *прым.* **разме́сачны**, -ая, -ае (спец.).

**РАЗМЯСЦІ́ЦЦА**, -мяшчу́ся, -ме́сцішся, -ме́сціцца; *зак.* Заняць месца; уладкавацца. *Р. па вагонах. Р. на кватэры.* ‖ *незак.* **размяшча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **размяшчэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗМЯСЦІ́ЦЬ**, -мяшчу́, -ме́сціш, -ме́сціць; -ме́шчаны; *зак., каго-што.* **1.** Расставіць або раскласці па месцах у пэўным парадку; даць кожнаму месца. *Р. тавары на паліцах. Р. пасажыраў у вагоне.* **2.** Размеркаваць паміж многімі. *Р. латарэйныя білеты.* ‖ *незак.* **размяшча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **размяшчэ́нне**, -я, *н.*

**РАЗМЯТА́ЦЬ** *гл.* размесці.

**РАЗМЯ́ЦЦА**, разамну́ся, разамне́шся, разамне́цца; разамнёмся, разамняце́ся, разамну́цца; разамні́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць мяккім (ад сціскання, расцірання). *Воск размяўся.* **2.** *перан.* З дапамогай якіх-н. рухаў прывесці цела ў стан фізічнай бадзёрасці (разм.). *Р. пасля сну.* ‖ *незак.* **размінацца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **размі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (да 2 знач.); *прым.* **размі́начны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Размінацная дарожка.*

**РАЗМЯ́ЦЬ**, разамну́, разамне́ш, разамне́; разамнём, разамняце́, разамну́ць; разамні́; размя́ты; *зак.* **1.** *гл.* мяць. **2.** *перан., каго-што.* Рухамі прывесці цела ў стан фізічнай бадзёрасці (разм.). *Р. ногі.* ‖ *незак.* **размiна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **размі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**РАЗМЯЧА́ЦЬ** *гл.* размеціць.

**РАЗМЯША́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -мяша́ны *і* -ме́шаны; *зак., што.* Прыгатаваць што-н. шляхам размешвання лыжкай, мешалкай і пад. *Р. цукар у шклянцы чаю.* ‖ *незак.* **разме́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разме́шванне**, -я, *н.*

**РАЗНА...** (*гл.* **розна...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест

«розна...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *разназначны, разнаколерны.*

**РАЗНАБО́Й**, -ю, *м.* Адсутнасць узгодненасці, зладжанасці, адзінства ў чым-н. *Ліквідаваць р. у працы. Р. у правапісе.* ‖ *прым.* **разнабо́йны**, -ая, -ае.

**РАЗНАВІ́ДНАСЦЬ**, -і, *ж.* Прадмет або з'ява, якая ўяўляе сабой відазмяненне асноўнага віду, катэгорыі. *Р. пшаніцы.*

**РАЗНА́ДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* (разм.). Разахвоціцца да чаго-н., набыць якую-н. звычку. *Р. хадзіць у грыбы.*

**РАЗНА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго-што* (разм.). Разахвоціць, прывучыць да чаго-н.

**РАЗНАКО́ЛЕРНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *рознакаляровы.*

**РАЗНАМО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які складаецца з людзей, якія гавораць на розных мовах. *Разнамоўнае насельніцтва.* **2.** Які змяшчае словы розных моў. *Р. слоўнік.* ‖ *наз.* **разнамо́ўе**, -я, *н.*

**РАЗНАМЫ́СНАСЦЬ**, -і, *ж.* Нязгода ў думках, разыходжанне ў перакананнях.

**РАЗНАПО́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** толькі *мн.* Featured Рознага полу, неаднолькавыя па поле. *Разнаполыя дзеці.* **2.** Які мае раздзельнаполыя кветкі (спец.). ‖ *наз.* **разнапо́ласць**, -і, *ж.*

**РАЗНАРА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Размеркаванне каго-, чаго-н. у планавым парадку; распараджэнне аб такім размеркаванні. *Р. на атрыманне будаўнічых матэрыялаў.* **2.** Пісьмовае распараджэнне аб парадку выканання якіх-н. работ або размеркаванні рабочых па рабочых месцах.

**РАЗНАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. З неаднолькавымі, рознымі прыкметамі, уласцівасцямі. *Разнародныя рэчывы.* ‖ *наз.* **разнаро́днасць**, -і, *ж.*

**РАЗНАСІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -но́сіцца; *зак.* Стаць прастарнейшым пасля носкі. *Боты разнасіліся.* ‖ *незак.* **разно́швацца**, -аецца.

**РАЗНАСІ́ЦЬ**, -нашу́, -но́сіш, -но́сіць; -но́шаны; *зак., што.* Носячы, зрабіць прастарнейшым. *Р. туфлі.* ‖ *незак.* **разно́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разно́шванне**, -я, *н.*

**РАЗНАСТА́ЙНЫ**, -ая, -ае. Неаднолькавы з іншым (іншымі) па якіх-н. прыкметах. *Разнастайныя людзі. Разнастайныя ўражанні.* ‖ *наз.* **разнаста́йнасць**, -і, *ж.*

**РАЗНАТРА́ЎЕ**, -я, *н.* **1.** Розныя травы, якія растуць разам. **2.** Група кармавых травяністых раслін (акрамя злакавых, бабовых і асаковых; спец.). ‖ *прым.* **разнатра́ўны**, -ая, -ае.

**РАЗНАЧЫ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* У Расіі ў 19 ст.: прагрэсіўна настроены інтэлігент недваранскага паходжання. ‖ *прым.* **разначы́нны**, -ая, -ае *і* **разначы́нскі**, -ая, -ае.

**РАЗНАШЭ́РСНЫ**, -ая, -ае. **1.** З неаднолькавай шэрсцю. *Р. табун коней.* **2.** *перан.* Разнастайны па складзе (разм.). ‖ *наз.* **разнашэ́рснасць**, -і, *ж.*

**РАЗНЕРВАВА́ЦЦА**, -нервую́ся, -нерву́ешся, -нерву́ецца; -нерву́йся; *зак.* Пачаць вельмі нервавацца, прыйсці ва ўзбуджаны стан; расхваляваецца. *Моцна р.*

**РАЗНЕ́СЦІ**, -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; -нясём, -несяце́, -нясу́ць; разнёс, -не́сла *і* -нясла́, -не́сла *і* -нясло́; разнясі́; -нéсены; *зак.* **1.** *каго-што.* Несучы, даставіць у пэўнае месца. *Р. пісьмы.* **2.** Развеяць, рассеяць; разагнаць. *Вецер разнёс хмары.* **3.** *што.* Распаўсюдзіць сярод многіх. *Р. інфекцыю. Р. чутку.* **4.** *што.* Размеркаваць, запісаўшы ў розных месцах. *Р. па графах.* **5.** *што.* Расцягнуць па частках, раскрасці (разм.). *Р. цэмент.* **6.** *што.* Разбурыць, разбіць, разламаць (разм.). *Бурай разнесла* (безас.) *хлеў.* **7.** *каго-што.* Падвергнуць рэзкай крытыцы (разм.). *Р. на сходзе.* **8.** *безас., каго-што.* Пра ўтварэнне апухласці на чым-н. (разм.). *Шчаку разнесла.* ‖ *незак.* **разно́сіць**, -ношу́, -но́сіш, -но́сіць. ‖ *наз.* **разно́с**, -у, *м.* (да 1—7 знач.), **разно́ска**, -і, *ДМ* -но́сцы, *ж.* (да 1, 3 і 4 знач.). ‖ *прым.* **разно́сны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Р. тавар. Р. гандаль.*

**РАЗНЕ́СЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нясе́цца; разнёсся, -не́слася *і* -нясла́ся, -не́слася *і* -нясло́ся; *зак.* **1.** Распаўсюдзіцца, пашырыцца. *Разнесліся чуткі.* **2.** Прагучаць, стаць чутным на далёкую адлегласць. *Разнёсся звон.* **3.** *перан.* Хутка разысціся па чым-н., у чым-н. *Па целе разнеслася цеплыня.* ‖ *незак.* **разно́сіцца**, -сіцца.

**РАЗНІЗА́ЦЬ**, -ніжу́, -ні́жаш, -ні́жа; -ні́заны; *зак., што.* Зняць нанізанае. *Р. пацеркі.* ‖ *незак.* **разні́зваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто займаецца рэзаннем жывёлы; мяснік.

**РАЗНІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* Зняць або паслабіць ніты[1] ў чым-н. ‖ *незак.* **разніто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* (разм.). Прадпрыемства, дзе рэжуць жывёлу; бойня.

**РАЗНО́С**, -у, *м.* **1.** *гл.* разнесці. **2.** Суровая размова з рэзкай крытыкай (разм.). *Зрабіць р. каму-н.*

**РАЗНО́СІЦЦА** *гл.* разнесціся.

**РАЗНО́СІЦЬ** *гл.* разнесці.

**РАЗНО́СНЫ**, -ая, -ае. **1:** *гл.* разнесці. **2.** Які служыць для рэгістрацыі выходнай карэспандэнцыі (спец.). *Разносная кніга.* **3.** Які змяшчае рэзкую крытыку (разм.). *Р. артыкул.*

**РАЗНО́СЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто займаецца разноскай, дастаўкай чаго-н. *Р. піцы.* **2.** *чаго.* Той, хто з'яўляецца распаўсюджвальнікам чаго-н. *Р. інфекцыі.* *ж.* **разно́счыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**РАЗНО́ШВАННЕ** *гл.* разнасіць.

**РАЗНО́ШВАЦЦА** *гл.* разнасіцца.

**РАЗНО́ШВАЦЬ** *гл.* разнасіць.

**РАЗНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* рэзаць. **2.** Зроблены разьбой (у 1 знач.). *Разныя ўпрыгожанні.* **3.** Упрыгожаны разьбой (у 2 знач.). *Разныя аканіцы.*

**РАЗНЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ны́ецца; *зак.* **1.** Пачаць многа ныць (у 1 знач.); разбалецца. *Разныліся старыя косці.* **2.** Пачаць многа ныць (у 2 знач.); жаліцца, надаядаць.

**РАЗНЮ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Распазнаць нюхам. *Сабака разнюхаў след зайца.* **2.** *перан., што* і *пра што.* Даведацца пра што-н. тайком; разведаць (разм.). *Ад яе нічога не ўтоіш, умомант разнюхае.* ‖ *незак.* **разню́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗНЯ́**, -і́, *ж.* Масавае забойства, кровапраліцце. *Крывавая р.*

**РАЗНЯВО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго-што.* Збавіць ад няволі, прыгнёту; даць волю. ‖ *незак.* **разнявóльваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **разнявóленне**, -я, *н.*

**РАЗНЯ́ЦЬ**, -німу́, -ні́меш, -ні́ме; -ні́мі́; -ня́ты; *зак., каго-што.* **1.** Аддзяліць адно ад другога; раз'яднаць. *Р. кулак.* **2.** Развесці ў бакі тых, хто б'ецца. *Р. забіяк.* ‖ *незак.* **разніма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **разніма́нне**, -я, *н.*

**РАЗО́К** *гл.* раз[1].

**РАЗО́РА**, -ы, *мн.* -ы, -зóр *і* -аў, *ж.* **1.** Доўгая канаўка на паверхні зямлі, праведзеная плугам у час ворыва. *Вузкія разоры.* **2.** Паглыбленне ў выглядзе канаўкі, зробленае плугам або лапатай на полі і агародзе для сцёку вады і для праходу. *Ісці разорай.* ‖ *прым.* **разо́равы**, -ая, -ае *і* **разо́рны**, -ая, -ае.

**РАЗРАБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* Разграбіць, расцягнуць, раскрасці. *Р. маёмасць.*

**РАЗРАБІ́ЦЬ**, -раблю́, -ро́біш, -ро́біць; -ро́блены; *зак., што.* **1.** Апрацаваўшы, падрыхтаваць для выкарыстання, зрабіць прыгодным на што-н., для чаго-н. *Р. участак лесу.* **2.** Расшырыць шляхам апрацоўкі. *Р. дзірку.* ‖ *незак.* **разрабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **разро́бліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗРАГАТА́ЦЦА**, -гачу́ся, -го́чашся, -го́чацца; -гачы́ся; *зак.* (разм.). Пачаць моцна і доўга рагатаць, смяяцца.

**РАЗРА́Д**[1], -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Група, катэгорыя асоб, прадметаў або з'яў, аб'яднаных агульнасцю якіх-н. прыкмет. *Р. раслін.* **2.** Ступень, афіцыйна зацверджаны ўзровень кваліфікацыі ў прафесіі, спорце. *Токар сёмага разраду.* **3.** У матэматыцы: месца, якое займае лічба пры пісьмовым абазначэнні ліку. *Лічба другога разраду.* ‖ *прым.* **разра́дны**, -ая, -ае.

**РАЗРА́Д**[2] *гл.* разрадзіць, разрадзіцца[1].

**РАЗРАДЗІ́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзі́цца; *зак.* **1.** Стаць разраджаным (пра агнястрэльную зброю). **2.** Страціць электрычны зарад. *Электрычная батарэя разрадзілася.* **3.** *перан.* Пра адносіны, абстаноўку: перастаць быць напружаным, стаць

спакайнейшым. *Абстаноўка разрадзілася.* || *незак.* **разраджа́цца**, -а́ецца. || *наз.* **разра́д**, -у, *М* -дзе, *м.*

**РАЗРАДЗІ́ЦЦА**[2], -раджу́ся, -ро́дзішся, -ро́дзіцца; *зак.* (разм.). Нарадзіць дзіця.

**РАЗРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ра́дзіш, -ра́дзіць; -ра́джаны; *зак., што.* **1.** Выняць зарад (з агнястрэльнай зброі). *Р. гранату.* **2.** Пазбавіць электрычнага зараду. *Р. акумулятар.* **3.** *перан.* Ліквідаваць напружанасць, аслабіць сілу праяўлення чаго-н. *Р. атмасферу ў сям'і.* || *незак.* **разраджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **разра́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* і **разра́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 знач.). || *прым.* **разра́дны**, -ая, -ае.

**РАЗРА́ДНІК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Аўтаматычнае прыстасаванне, якое засцерагае электрычныя ўстаноўкі ад перанапружання. *Іскравы р.*

**РАЗРА́ДНІК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спартсмен, які мае спартыўны разрад. || *ж.* **разра́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**РАЗРАЗА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *разразны* (у 3 знач.).

**РАЗРАЗА́ННЕ** *гл.* разрэзаць.

**РАЗРАЗА́ЦЬ** *гл.* разрэзаць.

**РАЗРАЗНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** З разрэзам, з разрэзамі. *Р. рукаў.* **2.** Які складаецца з разрэзаных частак, кавалкаў. *Разразная азбука.* **3.** Прызначаны для разразання. *Р. нож.*

**РАЗРАСЦІ́СЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -расце́цца; разро́сся, -расла́ся, -ло́ся; *зак.* **1.** У выніку росту стаць большым, гусцейшым. *Расада разраслася.* **2.** Стаць большым па велічыні, па колькасці. *Горад разросся. Штаты інстытута разрасліся.* || *незак.* **разраста́цца**, -а́ецца.

**РАЗРАЎНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* **1.** Зрабіць роўным, згладзіўшы бугры, няроўнасці. *Р. пляцоўку.* **2.** Тое, што і *разраўняць* (у 1 знач.). *Р. ліст паперы.*

**РАЗРАЎНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., што.* **1.** Зрабіць роўным, згладзіўшы складкі, згібы, няроўнасці. *Р. спадніцу.* **2.** Зрабіць раўнамерным, аднолькавым слой чаго-н. *Р. грунт.*

**РАЗРАЎЦІ́СЯ**, -раву́ся, -раве́шся, -раве́цца; -равёмся, -равяце́ся, -раву́цца; -раві́ся; *зак.* (разм.). **1.** Узняць моцны, працяжны роў (пра жывёл). **2.** Моцна, галасна расплакацца; разрыдацца.

**РАЗРАХУ́НАК**, -нку, *м.* (разм.). Тое, што і *разлік.*

**РАЗРО́БЛІВАЦЬ** *гл.* разрабіць.

**РАЗРО́ЗНЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не складае камплекта; у якім не хапае асобных частак. *Разрозненыя падшыўкі газет.* **2.** Пазбаўлены сувязі, адзінства. *Разрозненыя выступленні.* || *наз.* **разро́зненасць**, -і, *ж.*

**РАЗРО́ЗНІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніцца; *зак.* Стаць разрозненым, страціць цэласнасць. || *незак.* **разро́знівацца**, -аецца.

**РАЗРО́ЗНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што.* Парушыць цэласнасць, адзінства (камплекта, сукупнасці чаго-н.). *Р. камплект часопіса.* || *незак.* **разро́зніваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗРУМЯ́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* Пакрыцца румянцам, стаць румяным. *Твар разрумяніўся ад марозу.* || *незак.* **разрумя́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗРУМЯ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што.* Выклікаць румянец на твары ў каго-н.; зрабіць румяным. *Мароз разрумяніў шчокі.* || *незак.* **разрумя́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗРУ́ХА**, -і, *ДМ* -ру́се, *ж.* Поўнае расстройства, развал у гаспадарцы, у эканоміцы. *Цяжкі час ваеннай разрухі.*

**РАЗРЫВА́ЦЦА** *гл.* разарвацца.

**РАЗРЫВА́ЦЬ**[1] *гл.* разарваць.

**РАЗРЫВА́ЦЬ**[2] *гл.* разрыць.

**РАЗРЫДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Пачаць моцна рыдаць, зарыдаць. *Р. ад крыўды.*

**РАЗРЫСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Нанесці рысункі, узоры (звычайна алоўкам, пяром) на што-н.; распісаць. **2.** *перан.* Прадставіць у якім-н. выглядзе; размаляваць (разм.). *Р. гультая ў газеце.* || *незак.* **разрысо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **разрысо́ўка**, -і, *ДМ* -со́ўцы, *ж.* і **разрысо́ўванне**, -я, *н.*

**РАЗРЫ́Ў**, -ры́ву, *мн.* -ры́вы, -ры́ваў, *м.* **1.** *гл.* разарвацца, разарваць. **2.** Месца, дзе што-н. разарвана; прамежак, які ўтварыўся паміж разарванымі часткамі чаго-н. *Знайсці р. провада.* **3.** Перапынак, прамежак у часе. **4.** *перан.* Адсутнасць адпаведнасці, узгодненасці паміж чым-н. *Р. паміж тэорыяй і практыкай.* **5.** Поўнае спыненне якіх-н. адносін паміж кім-н. *Балюча перанесці р. з сябрам.*

**РАЗРЫЎНЫ́**, -а́я, -о́е. Які разрываецца ад удару. *Разрыўная куля. Р. зарад.*

**РАЗРЫХЛЕ́ННЕ** *гл.* рыхліць.

**РАЗРЫХЛІ́ЦЬ** *гл.* рыхліць.

**РАЗРЫХЛЯ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Машына, апарат для рыхлення, разрыхлення чаго-н. **2.** Рэчыва, якое надае чаму-н. рыхласць, порыстасць.

**РАЗРЫХЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., што.* Тое, што і *рыхліць. Р. глебу.*

**РАЗРЫ́ЦЬ**, -ры́ю, -ры́еш, -ры́е; -ры́ты; *зак., што.* Рыючы, раскідаць, развярнуць. *Р. двор.* || *незак.* **разрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗРЭГУЛЯВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -лю́ецца; *зак.* Страціць рэгуліроўку, выйсці з рабочага стану. *Станок разрэгуляваўся.*

**РАЗРЭ́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* **1.** Стаць рэдкім (у 2 знач.), радзейшым, утварыўшы прамежкі. *Пасевы разрэдзіліся.* **2.** Стаць менш шчыльным, менш густым. *Змрок разрэдзіўся.* || *незак.* **разрэ́джвацца**, -аецца. || *наз.* **разрэ́джванне**, -я, *н.*

**РАЗРЭ́ДЗІЦЬ**, -рэ́джу, -рэ́дзіш, -рэ́дзіць; -рэ́джаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць радзейшым, не такім частым, аддзяліўшы прамежкамі адзін ад аднаго. *Р. буракі.* **2.** Зрабіць меней шчыльным, меней густым. *Сонца разрэдзіла туман.* **3.** Разбавіць, развесці якой-н. вадкасцю. *Р. раствор.* || *незак.* **разрэ́джваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **разрэ́джванне**, -я, *н.*

**РАЗРЭ́ЗАЦЬ**, -рэ́жу, -рэ́жаш, -рэ́жа; -рэ́ж; -рэ́заны; *зак.* **1.** *гл.* рэзаць. **2.** *што.* Зрабіць рану на чым-н.; парэзаць. *Р. палец.* || *незак.* **разраза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е і **разрэ́зваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **разраза́нне**, -я, *н.*, **разрэ́з**, -у, *м.* і **разрэ́званне**, -я, *н.*

**РАЗРЭКЛАМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак., каго-што* (разм.). Рэкламуючы, зрабіць вядомым; расхваліць. *Р. тавар.*

**РАЗУВА́ЦЦА** *гл.* разуцца.

**РАЗУВА́ЦЬ** *гл.* разуць.

**РАЗУКАМПЛЕКТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* **1.** *што.* Зняўшы або прыняўшы часткі абсталявання, прывесці (прадпрыемства, механізм) у стан немагчымасці працаваць, дзейнічаць. **2.** *каго-што.* Парушыць цэласнасць чаго-н. укамплектаванага, скамплектаванага. *Р. звяно. Р. бібліятэку.* || *незак.* **разукамплекто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **разукамплекто́ўванне**, -я, *н.* і **разукамплектава́нне**, -я, *н.*

**РАЗУМЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* разумець. **2.** Здольнасць спасцігаць розумам змест, сэнс, значэнне чаго-н. *Р. законаў прыроды.* **3.** Пэўнае вытлумачэнне чаго-н. *Правільнае р. значэння слова.*

**РАЗУМЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** *каго-што.* Усведамляць, спасцігаць розумам сэнс, змест і пад. чаго-н.; асэнсоўваць. *Р. усё сказанае. Р. мастацтва. Р. музыку.* **2.** *што* і *з дадан.* Ведаць, здагадвацца аб чым-н., усведамляць што-н. *Р. сваю памылку. Р., што назад дарогі няма.* **3.** *каго-што.* Падразумяваць, мець на ўвазе. **4.** *у знач. пабочн. сл.* **разуме́еш (разуме́еце).** Ужыв. з мэтай падкрэсліць што-н., звярнуць увагу на што-н. *Я, разумееш, не згодна з такой думкай.* || *наз.* **разуме́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**РАЗУМНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Набірацца розуму, станавіцца разумным, разумнейшым. *Дзеці разумнеюць з гадамі.* || *зак.* **паразумне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**РАЗУ́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Разумны, разважлівы чалавек. || *ж.* **разу́мніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**РАЗУ́МНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Паступаць па-свойму, лічачы сябе разумнейшым за іншых. *Не разумнічай, рабі так, як табе кажуць.*

**РАЗУ́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, якому дадзены розум; надзелены розумам. *Разумная істота.* **2.** Кемлівы, разважлівы, надзелены жыццёвай мудрасцю. *Р. чалавек.* **3.** Які сведчыць аб розуме, разважлівасці. *Разумная думка. Разумнае слова.* **4.** Які адпавядае абставінам; мэтазгодны. *Разумная арганізацыя працы.* || *наз.* **разу́мнасць**, -і, *ж.*

**РАЗУМО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Звязаны з дзейнасцю розуму, свядомасцю. *Разумовая праца. Разумовыя здольнасці.* **2.** Аб-

страктны, які існуе або ўяўляецца толькі ў думках. || *наз.* **разумо́васць**, -і, *ж.*

**РАЗУПЭ́ЎНІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак., у чым.* Страціць упэўненасць у чым-н. *Р. ў сваіх меркаваннях.* || *незак.* **разупэ́ўнівацца**, -аюся, -аешся, -аецца. || *наз.* **разупэ́ўненне**, -я, *н.*

**РАЗУПЭ́ЎНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго (што) у чым.* Довадамі прымусіць каго-н. адмовіцца ад сваіх перакананняў, ад упэўненасці ў чым-н. *Р. у правільнасці рашэння задачы.* || *незак.* **разупэ́ўніваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **разупэ́ўненне**, -я, *н.*

**РАЗУХА́БІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Вельмі бойкі, развязны. *Р. хлопец.* **2.** Напоўнены грубай весялосцю, ліхацтвам. *Р. рогат.* || *наз.* **разуха́бістасць**, -і, *ж.*

**РАЗУ́ЦЦА**, разуюся, разуешся, разуецца; *зак.* Зняць са сваіх ног абутак. || *незак.* **разува́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАЗУ́ЦЬ**, разу́ю, разу́еш, разу́е; -зу́ты; *зак., каго-што.* Зняць з каго-, чаго-н. абутак. *Р. дзіця. Р. правую нагу.* || *незак.* **разува́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАЗУ́ЮЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што.* Зняць з жывёлы паклажу, уюк. *Р. вярблюда.* || *незак.* **разую́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗЦО́ВЫ** *гл.* разец.

**РАЗЫГРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Пачаўшы іграць, натхніцца, захапіцца ігрой. *Артысты разыграліся.* **2.** Паступова ўзмацніцца, дасягнуць высокай ступені ў сваім праяўленні. *Апетыт разыграўся.* **3.** Адбыцца, здарыцца. *Пад раніцу разыгралася бітва.* || *незак.* **разы́грывацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗЫГРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Іграючы, выканаць (музычны твор, тэатральную п'есу). *Р. квартэт. Р. ролю.* **2.** *што.* Згуляць, давесці шахматную партыю да канца. **3.** *што.* Прысудзіць шляхам латарэі, жэрабя выйгрыш. *Р. дзесяць выйгрышаў.* **4.** *каго (што).* Жартуючы з каго-н., паставіць яго ў смешнае становішча (разм.). *Р. таварыша.* || *незак.* **разы́грываць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **ро́зыгрыш**, -у, *м.* (да 3 і 4 знач.).

**РАЗЫ́НКІ**, -нак, *адз.* разы́нка, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Сушаныя ягады вінаграду. *Пірог з разынкамі.* || *прым.* **разы́нкавы**, -ая, -ае.

**РАЗЫСЦІ́СЯ**, разыду́ся, разы́дзешся, разы́дзецца; разышо́ўся, -шла́ся, -ло́ся; разыдзі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пайсці ў розныя бакі, розныя месцы. *Госці разышліся.* **2.** Ідучы насустрач, не сустрэцца; размінуцца. *Р. ў цемры.* **3.** *з кім.* Спыніць якія-н. сувязі, знаёмства з кім-н.; парваць адносіны. *Сябры разышліся.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раз'ехацца, рассунуцца ў бакі. *Р. па швах.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Аказацца распраданым, раскупленым. *Усе выданні разышліся.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Распаўсюдзіцца, расплыцца на паверхні чаго-н., у чым-н. *Пах разышоўся па пакоі.* **7.** Пашырыцца, стаць вядомым. *Чуткі разышліся.* **8.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паступова рассеяцца, знікнуць. *Дым разышоўся. Хмары разышліся.* **9.** Прывыкнуць да хады; перастаць адчуваць стому ад хады. **10.** Набыць большую скорасць у руху (разм.). *Няма дзе разысціся.* **11.** *перан.* Дайсці да крайняй ступені ў якіх-н. дзеяннях, у праяўленні чаго-н.; моцна ўзбудзіцца. *Дзеці разышліся, не суняць.* || *незак.* **разыхо́дзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца. || *наз.* **разыхо́джанне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.) *і* **разыхо́д**, -у, *М* -дзе (да 1 знач.).

**РАЗЬБА́**, -ы́, *ж.* **1.** *гл.* рэзаць. **2.** Узор, малюнак, выразаны на цвёрдых матэрыялах. *Р. па дрэве. Мастацкая р.* **3.** Вінтавая нарэзка. || *прым.* **разьбя́рны**, -ая, -ае *і* **разьбо́вы**, -ая, -ае (да 3 знач.). *Разьбярны інструмент. Разьбовае кальцо.*

**РАЗЬБЛЁНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *разны* (у 2 знач.). *Разьблёныя ліштвы акон.*

**РАЗЬБЯ́НЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *разны* (у 2 знач.). *Разьбяныя аканіцы.*

**РАЗЬБЯ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Майстар па мастацкай разьбе (у 2 знач.). **2.** Скульптар (уст.). || *прым.* **разьбя́рскі**, -ая, -ае. *Разьбярскае майстэрства.*

**РАЗЬБЯ́РСТВА**, -а, *н.* Разьбярская справа.

**РАЗЬБЯ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* (разм.). Займацца мастацкай разьбой.

**РАЗ'Ю́ШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *зак.* Стаць раз'юшаным; разлютавацца. *Сабака раз'юшыўся, ашчэрыў зубы.* || *незак.* **раз'ю́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАЗ'Ю́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., каго (што).* Давесці да ярасці, шаленства. *Р. звера.* || *незак.* **раз'ю́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАЗЯ́ВА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -зя́ў (разм., груб.). Рассеяны, няўважлівы чалавек.

**РАЗЯВА́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ва́цы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -ва́к (разм.). **1.** Той, хто бяздумна, рассеяна прыглядаецца да чаго-н. *Каля вітрыны збіраліся разявакі.* **2.** Тое, што і *разява. Згубіў грошы, р.!*

**РАЗЯ́ВІЦЦА**, разя́ўлюся, разя́вішся, разя́віцца; *зак.* (разм.). **1.** Шырока раскрыцца (пра рот, пашчу). **2.** *перан.* Уставіцца вачыма, позіркам. *Чаго ты разявіўся на мяне?* || *наз.* **разяўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**РАЗЯ́ВІЦЬ**, разя́ўлю, разя́віш, разя́віць; разя́ўлены; *зак., што* (разм.). Шырока раскрыць (рот, пашчу). ◊ **Разявіць горла** (разм., груб.) — моцна, на ўсю сілу загаварыць, закрычаць. || *незак.* **разяўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**РАЗ'ЯДА́ННЕ** *гл.* раз'есці.

**РАЗ'ЯДА́ЦЦА** *гл.* раз'есціся.

**РАЗ'ЯДА́ЦЬ** *гл.* раз'есці.

**РАЗ'ЯДНА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Апарат для раз'яднання і пераключэння ўчасткаў высакавольтнай лініі.

**РАЗ'ЯДНА́НАСЦЬ**, -і, *ж.* Стан раз'яднанага; адсутнасць еднасці, агульнасці.

**РАЗ'ЯДНА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Аддзяліцца адзін ад аднаго (пра злучаныя часткі чаго-н.; разм.). *Правады раз'ядналіся.* **2.** *перан.* Страціць сувязь, стаць далёкімі, чужымі адзін аднаму.

**РАЗ'ЯЗДЖА́ЦЦА** *гл.* раз'ехацца.

**РАЗ'ЯЗДЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Многа і часта ездзіць з месца на месца. *Р. па краіне.* || *прым.* **раз'язны́**, -а́я, -о́е. *Р. агент. Р. карэспандэнт.*

**РАЗ'ЯЗНЫ́** *гл.* раз'езд, раз'язджаць.

**РАЗ'ЯРЫ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; раз'я́раны; *зак., каго.* Прывесці ў ярасць. *Р. звера.*

**РАЗ'ЯСНЕ́ЦЬ**, -е́е; *безас., зак.* Стаць ясным, сонечным, праясніцца.

**РАЗ'ЯСНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -і́цца; *зак.* Стаць ясным, сонечным, праясніцца. *Неба раз'яснілася.* || *незак.* **раз'ясня́цца**, -я́ецца *і* **раз'я́сніvацца**, -аецца.

**РАЗ'Я́ТРАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Разлютаваны, раз'юшаны. *Р. бык.* **2.** Моцна развярэджаны, растрывожаны. *Балелі раз'ятраныя раны.* || *наз.* **раз'я́транасць**, -і, *ж.*

**РАЗ'Я́ТРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* **1.** *каго (што).* Выклікаць у кім-н. моцнае раздражненне, злосць; раз'юшыць. **2.** *што.* Прычыніць боль, дакрануўшыся да балючага месца; растрывожыць, развярэдзіць. *Р. рану.* || *незак.* **раз'я́трываць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **раз'я́трыванне**, -я, *н.*

**РАІ́СТЫ**, -ая, -ае. Які дае многа раёў, які часта раіцца. *Раістая сям'я пчол.* || *наз.* **раі́стасць**, -і, *ж.*

**РА́ІЦЦА**, ра́юся, ра́ішся, ра́іцца; ра́йся; *незак.* Пытацца, прасіць парады ў каго-н. *Р. з мудрымі людзьмі.* || *зак.* **пара́іцца**, -а́юся, -а́ішся, -а́іцца; -а́йся.

**РАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., раі́цца; *незак.* **1.** Утвараць новы рой. **2.** Лятаць, збірацца роем. **3.** *перан.* Паяўляцца ў вялікай колькасці (пра думкі, пачуцці, сны і пад.). *Думкі раяцца ў галаве.* || *наз.* **рае́нне**, -я, *н.*

**РА́ІЦЬ**, ра́ю, ра́іш, ра́іць; рай; *незак.* **1.** *каго-што* і *з інф.* Даваць якую-н. параду, рэкамендацыі, як зрабіць што-н., як паступіць. *Р. больш хадзіць.* **2.** *з інф.* (з адмоўем). Перасцерагаць ад чаго-н., не рэкамендаваць рабіць што-н. *На вайне не раяць весці дзённік.* || *зак.* **пара́іць**, -а́ю, -а́іш, -а́іць; -а́й (да 1 знач.) *і* **прыра́іць**, -а́ю, -а́іш, -а́іць; -а́й; -а́ены.

**РАІ́ЦЬ**, раю́, раі́ш, раі́ць; раі́м, раіце́, ра́яць; *незак., каго-што.* Збіраць у рой. *Р. пчол.*

**РАЙ**, ра́ю, *м.* **1.** Паводле рэлігійнага вучэння: месца, дзе знаходзяць шчаслівае існаванне душы праведнікаў пасля іх смерці. *Рад бы ў р., ды грахі не пускаюць* (прымаўка). **2.** *перан.* Наогул пра добрыя жыццёвыя ўмовы; прыгожую мясцовасць. *Тут проста р., а не жыццё.* || *прым.* **ра́йскі**, -ая, -ае.

**РАЙ...** Першая састаўная частка складанаскарочаных слоў, якая адпавядае па знач. слову раённы, напр.: *райвыканкам, райцэнтр.*

**РАЙНІ́К**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* Абцягнуты палатном кошык для лоўлі рою, які вылецеў з вулля.

**РА́ЙСКІ** *гл.* рай.

**РАК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Пакрытая панцырам прэснаводная або марская жывёліна з клюшнямі і брушкам. *Рачны р.* ◊ **Калі рак свісне** — невядома калі або ніколі. **Паказаць, дзе ракі зімуюць** *каму* — правучыць, пакараць каго-н. ‖ *памянш.* **рачóк**, -чкá, *мн.* -чкі́, -чкóў, *м.* ‖ *прым.* **рáкавы**, -ая, -ае *і* **рачы́ны**, -ая, -ае. *Ракавая шыйка* (брушка рачнога рака). *Рачыныя вочы.*

**РАК**[2], -у, *м.* **1.** Злаякасная пухліна ў арганізме чалавека або жывёлы. *Р. страўніка.* **2.** Хвароба раслін. *Р. бульбы.* ‖ *прым.* **рáкавы**, -ая, -ае. *Ракавая пухліна.*

**РАКА́**, -і́, *ДМ* рацэ́, *мн.* рэ́кі *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) ракі́, рэк, *ж.* **1.** Прыродны вадаём, які пастаянна цячэ па пракладзеным вадой рэчышчы ад вытоку ўніз да вусця. *Пайсці на раку. Рыбка ў рацэ, ды не ў руцэ* (прымаўка). **2.** *перан.* Няспынны паток чаго-н., вялікая колькасць. *Па плошчы плыла людская р. Рэкі крыві.* ‖ *памянш.-ласк.* **рэ́чачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *нар.-паэт.* **рэ́чанька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* ‖ *прым.* **рачны́**, -áя, -óе.

**РА́КАВІНА**, -ы, *мн.* -ы, -він, *ж.* **1.** Цвёрдае ахоўнае покрыва некаторых беспазваночных жывёл у выглядзе вітай, авальнай або створкавай каробкі. *Р. малюска.* **2.** Назва розных прадметаў, якія сваім знешнім выглядам нагадваюць ракавіну (у 1 знач.). *Вушная р. Мыцца над ракавінай.* **3.** Пустата ў метале, бетоне, гіпсе і пад., утвораная пры пераходзе рэчыва з вадкага стану ў цвёрды (спец.). *Усадачная р.* ‖ *памянш.-ласк.* **рáкавінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **рáкавінны**, -ая, -ае.

**РАКА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -кáд, *ж.* (спец.). Дарога ў прыфрантавой паласе, якая праходзіць паралельна лініі фронту. ‖ *прым.* **ракáдны**, -ая, -ае. *Ракадная дарога.*

**РАКАКО́**, *нескл.*, *н.* Архітэктурны і дэкаратыўны стыль 18 ст., які вызначаецца незвычайнай складанасцю форм і дзівосным арнаментам. *Архітэктура р. Мэбля р.*

**РА́КАМ**, *прысл.* (разм.). Стаўшы на карачкі. *Дзеці р. поўзалі па падлозе.*

**РАКАПАДО́БНЫЯ**, -ых. Клас членістаногіх з падзеленым на сегменты і пакрытым панцырам целам і вялікай колькасцю членістых канечнасцей.

**РАКАТА́ЦЬ**, -качý, -кóчаш, -кóча; -качы́; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Утвараць раскацістыя гукі. *Рокача і пеніцца мора. Трактар ракоча.* **2.** Гаварыць, спяваць нізкім раскацістым голасам. *За дзвярыма ракатаў начальніцкі бас.* ‖ *наз.* **ракатáнне**, -я, *н.*

**РАКЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -кéце, *мн.* -ы, -кéт, *ж.* **1.** Лятальны апарат з рэактыўным рухавіком. *Касмічная р.* **2.** Баявы снарад, які прыводзіцца ў дзеянне рэактыўнай сілай. **3.** Напоўнены піратэхнічнай сумессю снарад, які пасля выстралу ярка свеціцца ў паветры і выкарыстоўваецца для феерверкаў і светлавых сігналаў. *Сігнальная р.* **4.** Быстраходнае рачное пасажырскае судна на падводных крылах. *Плысці на ракеце.* ‖ *прым.* **ракéтны**, -ая, -ае. *Дзень ракетных войск і артылерыі.*

**РАКЕТА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да ракеты (у 1 знач.), напр.: *ракетабудаванне, ракетабудаўнік, ракетадром, ракетаносец, ракетаносны, ракетападобны.*

**РАКЕТАБУДАВА́ННЕ**, -я, *н.* Вытворчасць ракет (у 1 знач.).

**РАКЕТАДРО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Комплекс збудаванняў і тэхнічных сродкаў для запуску ракет (у 1 знач.). ‖ *прым.* **ракетадрóмны**, -ая, -ае.

**РАКЕТАНО́СЕЦ**, -нóсца, *мн.* -нóсцы, -нóсцаў, *м.* Самалёт, карабель ці падводная лодка, аснашчаныя ракетамі (у 1 і 2 знач.).

**РАКЕТАНО́СНЫ**, -ая, -ае. Узброены баявымі ракетамі. *Р. карабель.*

**РАКЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Спартыўны снарад у выглядзе зацягнутага сеткай авальнага абруча з дзяржаннем або лапаткі з ручкай для гульні ў тэніс, бадмінтон, пінг-понг. *Тэнісная р. Першая р.* (перан.: лепшы ігрок). ‖ *прым.* **ракéтачны**, -ая, -ае.

**РАКЕ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Ваеннаслужачы ракетных войск. **2.** Чалавек, які падае сігналы ракетамі (у 3 знач.). ‖ *ж.* **ракéтчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**РАКІРАВА́ЦЦА**, -рýюся, -рýешся, -рýецца; -рýйся; *зак.* і *незак.* (спец.). Зрабіць (рабіць) ракіроўку.

**РАКІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -рóўцы, *мн.* -і, -рóвак, *ж.* **1.** У шахматнай гульні: адначасовы ход каралём і ладдзёй, пры якім кароль перастаўляецца цераз адно поле ў бок ладдзі, а ладдзю пераносяць цераз караля і ставяць побач з ім. *Зрабіць ракіроўку.* **2.** Перастаноўка сіл, замена ў чым-н. з мэтай умацавання пазіцый. *Р. кадраў. У футбольнай камандзе адбылася р.* ‖ *прым.* **ракірóвачны**, -ая, -ае.

**РАКІ́ТА**, -ы, *ДМ* -кі́це, *мн.* -ы, -кі́т, *ж.* Дрэва або вялікі куст сямейства вярбовых. ‖ *прым.* **ракі́тавы**, -ая, -ае.

**РАКІ́ТНІК**, -у, *м.* Зараснік ракіты, кусты ракіты.

**РА́КУРС**, -у, *м.* **1.** Перспектыўнае скарачэнне аддаленых ад гледача частак адлюстраванага на плоскасці прадмета (спец.). **2.** *перан.* Пункт погляду, з якога што-н. разглядаецца; аспект. *Падаць праблему ў новым ракурсе.* ‖ *прым.* **рáкурсны**, -ая, -ае.

**РАКУ́ШНІК**, -у, *м.* Порыстая вапнавая горная парода, якая складаецца з ракавін марскіх жывёл, змацаваных вапняковым ілам. ‖ *прым.* **ракýшачны**, -ая, -ае.

**РАКФО́Р**, -у, *м.* Гатунак сыру з плесневым грыбком, які адрозніваецца асаблівай вастрынёй смаку і паху.

**РА́ЛА**, -а, *мн.* -ы, рал, *н.* Адгаліненне ствала дрэва; тоўсты сук. ‖ *прым.* **рáлісты**, -ая, -ае. *Ралістая дзічка.*

**РА́ЛІ**, *нескл.*, *н.* Аўта- або мотагонкі на спецыяльных спартыўных машынах паводле зададзенага рэжыму руху. *Аўтамабільнае р.* ‖ *прым.* **ралíйны**, -ая, -ае.

**РАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які ўдзельнічае ў ралі.

**РАЛЛЯ́**, -і́, *ж.* Узаранае поле, узараная глеба. *Свежая р.*

**РА́МА**, -ы, *мн.* -ы, рам, *ж.* **1.** Аконны пераплёт з устаўленым шклом і без яго. *Драўляныя рамы.* **2.** Аправа для ўстаўкі карцін, партрэтаў, люстраў і пад. *Прыгожая р.* **3.** Нясучая частка машыны, якой-н. канструкцыі; станіна. *Веласіпедная р.* **4.** Прамавугольнік з брусоў або планак для розных патрэб і мэт. ○ **Лесапільная рама** — машына для падоўжнага распілоўвання бярвення. ‖ *прым.* **рáмны**, -ая, -ае (да 1, 2 і 4 знач.).

**РАМА́Н**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апавядальны твор са складаным сюжэтам і шматлікімі героямі; вялікая форма эпічнай літаратуры. *Гістарычны р.* ‖ *прым.* **рамáнны**, -ая, -ае *і* **раманí́чны**, -ая, -ае. *Раманны жанр. Раманічная кампазіцыя.*

**РАМА́Н**[2], -а, *м.* (разм.). Любоўныя адносіны паміж мужчынам і жанчынай. *Завесці р.* ‖ *прым.* **раманí́чны**, -ая, -ае. *Раманічная гісторыя.*

**РАМАНІЗАВА́ЦЬ**, -зýю, -зýеш, -зýе; -зýй; -завáны; *зак.* і *незак., каго-што.* Правесці (праводзіць) у чыё-н. асяроддзе раманскую культуру. ‖ *звар.* **раманізавáцца**, -зýюся, -зýешся, -зýецца; -зýйся. ‖ *наз.* **раманізáцыя**, -і, *ж.*

**РАМАНІ́СТ**[1], -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пісьменнік, аўтар раманаў[1]. ‖ *ж.* **раманíстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**РАМАНІ́СТ**[2], -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вучоны, спецыяліст па раманістыцы[2]. ‖ *ж.* **раманíстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**РАМАНІ́СТЫКА**[1], -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Сукупнасць твораў, напісаных у жанры рамана. *Вывучэнне беларускай раманістыкі.*

**РАМАНІ́СТЫКА**[2], -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Сукупнасць навук, якія вывучаюць мовы і культуру раманскіх народаў; раманская філалогія.

**РАМА́НС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі лірычны верш (пераважна пра каханне), а таксама музычна-паэтычны твор для голасу з інструментальным суправаджэннем. ‖ *прым.* **рамáнсавы**, -ая, -ае. *Раманса-вая лірыка.*

**РАМА́НСКІ**, -ая, -ае. Які ўзнік на аснове старажытнарымскай культуры або звязаны з гэтай культурай. *Раманская культура. Раманская філалогія.*

**РАМАНТАВА́ЦЬ**[1], -тýю, -тýеш, -тýе; -тýй; -тавáны; *незак.* Праводзіць рамонт. *Р. хату. Р. вопратку.* ‖ *зак.* **адрамантавáць**, -тýю, -тýеш, -тýе; -тýй; -тавáны.

**РАМАНТАВА́ЦЬ**[2], -тýю, -тýеш, -тýе; -тýй; *незак., што* (спец.). **1.** Папаўняць та-

бун або статак маладняком. **2.** Ліквідаваць разрэджанасць пасеваў, прысад падсадкай новых раслін.

**РАМАНТЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; *зак.* і *незак., каго-што.* Уявіць (уяўляць), паказаць (паказваць) каго-, што-н. у рамантычным ідэалізаваным выглядзе. ‖ *наз.* **рамантыза́цыя**, -і, *ж.*

**РАМАНТЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Кірунак у літаратуры і мастацтве канца 18 — 1-й паловіны 19 ст., прыхільнікі якога выступалі супраць канонаў класіцызму і сцвярджалі неабходнасць стварэння вобразаў ідэальных герояў і пачуццяў, выкарыстоўваючы гістарычныя і народна-паэтычныя тэмы. **2.** Мастацкі метад, у якім першаступеннае значэнне адводзіцца суб'ектыўнай пазіцыі мастака ў адносінах да з'яў жыцця і паказу высокага прызначэння чалавека. **3.** Настрой думак, светаадчуванне, прасякнутыя ідэалізацыяй рэчаіснасці, летуценнай сузіральнасцю. ‖ *прым.* **раманты́чны**, -ая, -ае.

**РАМА́НТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Прыхільнік і паслядоўнік рамантызму (у 1 і 2 знач.). **2.** Чалавек, схільны да рамантызму (у 3 знач.). **3.** Чалавек, прасякнуты рамантыкай, высокімі пачуццямі.

**РАМА́НТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Тое, што змяшчае ідэі і пачуцці, якія эмацыянальна ўзвышаюць чалавека. *Р. творчых пошукаў.* **2.** Незвычайнасць, казачнасць чаго-н., якая выклікае эмацыянальнае, прыўзнятае светаадчуванне. *Р. гор.*

**РАМАНТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рамантызм. **2.** Прасякнуты рамантызмам (у 3 знач.). *Р. настрой.* ‖ *наз.* **раманты́чнасць**, -і, *ж.*

**РАМА́ТУС**, -у, *м.* (разм.). Тое, што і *рэўматызм.*

**РА́МАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рамачны вулей.

**РАМБІ́ЧНЫ** *гл.* ромб.

**РАМЕ́ННЫ** *гл.* рэмень.

**РАМЕ́НЬ** *гл.* рэмень.

**РАМЕ́НЬЧЫК** *гл.* рэмень.

**РАМЕ́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які займаецца, валодае прафесійным рамяством. *Дробны р.* **2.** *перан.* Той, хто працуе без творчай думкі, па шаблоне. **3.** Вучань рамеснага вучылішча (разм.). ‖ *ж.* **раме́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **раме́сніцкі**, -ая, -ае і **раме́сны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Р. промысел. Рамесная праца.*

**РАМЕ́СНІЦКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рамеснік. **2.** Тое, што і *рамесны. Рамесніцкае вучылішча.*

**РАМЕ́СНІЦТВА**, -а, *н.* **1.** Занятак рамяством, саматужнай работай. **2.** *перан.* Работа без творчай ініцыятывы, па шаблоне. *Мастацтва выключае паняцце рамесніцтва.*

**РАМЕ́СНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Быць рамеснікам (у 1 знач.), займацца рамяством.

**РАМЕ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рамеснік, рамяство. **2.** Які рыхтаваў кадры кваліфікаваных рабочых (у 1940—1958 гг.). *Рамеснае вучылішча. Рамесная школа.*

**РАМІ́З**, -у, *м.* (спец.). **1.** У некаторых картачных гульнях: недабор пэўнай колькасці бітак, а таксама штраф за такі недабор. **2.** У фехтаванні: паўторны папярэджальны ўкол.

**РАМІ́ЗІЦЦА**, -мі́жуся, -мі́зішся, -мі́зіцца; *незак.* Прайграваць у карты ў выніку рамізу (у 1 знач.). ‖ *зак.* **абрамі́зіцца**, -мі́жуся, -мі́зішся, -мі́зіцца.

**РАМІ́ЗНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Фурман наёмнага экіпажа. **2.** Экіпаж з фурманам. ‖ *прым.* **рамі́зніцкі**, -ая, -ае.

**РАМІ́ЗНІЦТВА**, -а, *н.* Занятак рамізніка (у 1 знач.).

**РА́МКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* **1.** Невялікая рама (у 2 знач.). *Партрэт у прыгожай рамцы.* **2.** Графічнае абрамленне якога-н. тэксту, малюнка. **3.** толькі *мн., чаго; перан.* Межы, у якіх павінна адбывацца, адбываецца што-н. *У рамках канцэртнай праграмы.* **4.** Прыстасаванне для сотаў у вуллі. ◊ **Выйсці за рамкі** — перайсці межы чаго-н. ‖ *прым.* **ра́мачны**, -ая, -ае (у 1, 2 і 4 знач.). *Рамачная антэна. Р. вулей.*

**РАМО́НАК**, -нку *і* -нка, *м.* **1.** -нку. Травяністая расліна сямейства складанакветных з адзіночнымі кветкамі, у якіх пялёсткі звычайна белыя, а сярэдзіна жоўтая. **2.** -нка, *мн.* -нкі, -нкаў. Кветка гэтай расліны. **3.** -нку. Лекавы настой або высушаныя кветкі гэтай расліны. *Паласкаць горла рамонкам.* ‖ *прым.* **рамо́нкавы**, -ая, -ае.

**РАМО́НТ**[1], -у, *М* -нце, *м.* Ліквідацыя пашкоджанняў, паломак. *Р. абутку. Капітальны р. кватэры.* ‖ *прым.* **рамо́нтны**, -ая, -ае. *Рамонтныя работы.*

**РАМО́НТ**[2], -у, *М* -нце (спец.). **1.** Папаўненне табуна або статка маладняком. **2.** Ліквідацыя зрэджанасці пасеваў, прысад насеннем, саджанцамі і пад. *Р. вінаграднікў.* ‖ *прым.* **рамо́нтны**, -ая, -ае. *Р. маладняк.*

**РАМО́НТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца рамонтам[1]. ‖ *ж.* **рамо́нтніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**РА́МПА**, -ы, *ж.* (спец.). **1.** Невысокі бар'ер уздоўж авансцэны, які прыкрывае ад гледачоў прыборы для асвятлення сцэны. **2.** Асвятляльная апаратура, якая змяшчаецца за такім бар'ерам. *Агні рампы.* ‖ *прым.* **ра́мпавы**, -ая, -ае.

**РАМШТЭ́КС**, -у, *м.* Адбіты і падсмажаны ў сухарах скрылік ялавічыны. *Р. з гарнірам.* ‖ *прым.* **рамштэ́ксны**, -ая, -ае.

**РА́МШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які працуе на лесапільнай раме.

**РАМЯСТВО́**, -а, *мн.* раме́ствы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) рамяствы́, раме́стваў, *н.* Прафесійны занятак, звязаны з вырабам якіх-н. тавараў ручным, саматужным спосабам. ‖ *прым.* **раме́сны**, -ая, -ае.

**РА́НА**[1], -ы, *мн.* -ы, ран, *ж.* **1.** Пашкоджанне тканак жывога арганізма, парушэнне яго цэласнасці. *Агнястрэльная р.* **2.** *перан.* Душэўны боль, пакуты. *Душэўная р.* ‖ *памянш.* **ра́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **ра́навы**, -ая, -ае. *Ранавая інфекцыя.*

**РА́НА**[2], ране́й, *прысл.* **1.** Раніцай, уранні. *З вечара да рана* (наз.). **2.** Раннім часам; пра ранні час. *Прыехаць вельмі р.* **3.** Да ўстаноўленага або патрэбнага часу. *Р. вярнуцца дадому. Р. легчы спаць.* ◊ **Рана ці позна, рана-позна** — калі-н. (пра тое, што абавязкова павінна здарыцца).

**РА́НАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Пачатак дня, раніца. ◊ **Добрага ранку!** — ранішняе прывітанне пры сустрэчы.

**РАНГ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Катэгорыя, разрад, клас (у 7 знач.). *Вышэйшы р.* **2.** Званне, чын. *Дыпламатычныя рангі. Капітан другога рангу.* ‖ *прым.* **ра́нгавы**, -ая, -ае.

**РАНГО́ЎТ**, -а, *М* -го́ўце, *м.* (спец.). Сукупнасць драўляных або стальных прыстасаванняў на судне, якія служаць для пастаноўкі і расцягвання парусоў, падымання цяжараў, падачы сігналаў. ‖ *прым.* **ранго́ўтны**, -ая, -ае.

**РАНДО́**[1], *нескл., н.* (спец.). Вершаваная форма з абавязковым паўтарэннем у страфе адных і тых жа радкоў у пэўным парадку; вершы, напісаныя ў такой форме.

**РАНДО́**[2], *нескл., н.* **1.** Закруглены рукапісны, а таксама друкаваны шрыфт (спец.). **2.** Пяро са зрэзаным канцом для пісання такім шрыфтам.

**РАНЕ́Й**, *прысл.* **1.** *гл.* рана[2]. **2.** Да пэўнага, указанага моманту. *Прыйсці на дзве гадзіны р.* **3.** У мінулым, да гэтага, да нядаўняга часу. *Р. тут было балота.* **4.** Спачатку, найперш. *Р. выслухай, а потым гавары.*

**РА́НЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае рану[1]. *Р. салдат.* **2.** *у знач. наз.* **ра́нены**, -ага, *м.*; **ра́неная**, -ай, *ж.* Чалавек, які атрымаў раненне. *Апераваць раненага.*

**РАНЕ́Т**, -у, *М* -не́це, *м.* Сорт каштоўнай паўднёвай яблыні, а таксама яе кісла-салодкія плады. ‖ *прым.* **ране́тавы**, -ая, -ае.

**РА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Паходная вайсковая або вучнёўская сумка, якую носяць на лямках за спінай. ‖ *прым.* **ра́нцавы**, -ая, -ае.

**РАНЖЫ́Р**, -у, *м.* **1.** Пастраенне ў калоне ваенных па росце (спец.). *Пастроіцца па ранжыры.* **2.** *перан.* Пэўны парадак у чым-н. ‖ *прым.* **ранжы́рны**, -ая, -ае.

**РА́НІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Час сутак ад канца ночы да пачатку дня, першыя гадзіны дня. ‖ *памянш.* **ра́нічка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ◊ **Добрай раніцы!** — ранішняе прывітанне пры сустрэчы. ‖ *прым.* **ра́нішні**, -яя, -яе. *Ранішняя зарадка.*

**РА́НІЦАЙ** *і* **РАНІЦО́Й**, *прысл.* У ранішні час, ранішняй парой.

**РА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак.* і *незак., каго-што.* **1.** Нанесці (наносіць) рану каму-н. *Р. руку.* **2.** *перан.* Прычыніць (прычыняць) каму-н. душэўны боль, пакуты. *Р. чулае сэрца.* ‖ *наз.* **ране́нне**, -я, *н.*

**РА́НІШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Святочнае мерапрыемства, спектакль для дзяцей-дашкольнікаў і малодшых школьні-

каў. *Дзіцячы р.* **2.** Ранішні мароз увосень і вясной. *Лістападаўскі р.*

**РА́НКАМ**, *прысл.* У ранні час; раніцай.

**РА́ННЕ**, -я, *н.* Тое, што і *раніца*.

**РАННЕ...** (а таксама **рання...**). Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову «ранні» (у 2 знач.), напр.: *раннестаражытны, раннефеадальны.*

**РА́ННІ**, -яя, -яе. **1.** Які мае адносіны да рання; ранішні. *У р. час.* **2.** Які з'яўляецца самай першай, пачатковай парой якога-н. часу, пачаткам пэўнага працэсу, першай стадыяй развіцця. *Р. вечар. Ранняе Сярэдневякоўе.* **3.** Які наступае раней, чым звычайна (пра поры года, час сутак і пад.). *Ранняя зіма.* ◊ **Маладыя ды ранні** (разм., часцей неадабр.) — пра вопытнага, спрактыкаванага не па гадах чалавека. **Ранняя птушка** — пра таго, хто рана ўстае, з'яўляецца рана дзе-н.

**РАННЯ...** (*гл.* **ранне...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «ранне...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр., *раняспелы.*

**РАНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вузкая палоска скуры па краях абутку, да якой прышываюцца адначасова падэшва і верх абутку. ‖ *прым.* **ра́нтавы**, -ая, -ае.

**РАНЦЬЕ́**, *нескл., м.* Чалавек, які жыве на рэнту.

**РА́НЧА**, *нескл., н.* Сядзіба ў краінах Лацінскай Амерыкі; ферма ў ЗША.

**РАНЬ**, -і, *ж.* Вельмі ранні час. *У такую р. падняўся!*

**РАПА́**, -ы́, *ж.* Вада салёных азёр, марскіх заліваў з высокай канцэнтрацыяй солей (выкарыстоўваецца як лекавы сродак).

**РАПА́К**, -у́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (спец.). Ільдзіна, якая вертыкальна або з нахілам вылучаецца на ледзяной паверхні.

**РАПАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак., што* (разм.). Папраўляць, рамантаваць. *Р. абутак.* ‖ *наз.* **рапарава́нне**, -я, *н. і* **рапара́цыя**, -і, *ж.*

**РА́ПАРТ**, -а, *М* -рце, *м.* **1.** Пісьмовы службовы даклад, данясенне аб чым-н. вышэйшай інстанцыі, начальству. *Напісаць р. начальніку.* **2.** Урачыстае паведамленне аб выкананні ўзятых на сябе абавязацельстваў. *Святочны р.*

**РАПАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *зак. і незак.* Прадставіць (прадстаўляць) рапарт (у 1 знач.), звярнуцца (звяртацца) з рапартам да каго-н. *Р. аб выкананні плана.* ‖ *зак.* таксама **адрапартава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й.

**РАПІ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -пі́р, *ж.* Колючая халодная зброя з доўгім чатырохгранным клінком, якая выкарыстоўваецца ў фехтаванні.

**РАПІРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен-фехтавальшчык на рапірах. ‖ *ж.* **рапіры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**РАПС**, -у, *м.* Аднагадовая травяністая алейная і кармавая расліна сямейства крыжакветных з жоўтымі кветкамі і шыза-зялёнымі лістамі. ‖ *прым.* **ра́псавы**, -ая, -ае.

**РАПСО́ДЫЯ**, -і, *мн.* -дый, *ж.* Інструментальны твор на тэмы народных песень, эпічных паданняў. *Венгерская р. Ліста.*

**РА́ПТАМ**, *прысл.* **1.** Знянацку, нечакана, неспадзявана. *Р. пачуўся стрэл.* **2.** *у знач. ўзмацн. часц.* Адпавядае па знач. словам: «а калі», «а што, калі» і пад. *Р. яшчэ захварэе.*

**РАПТО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які надышоў, адбыўся раптам, нечакана. *Р. разрыў адносін паміж сябрамі.* ‖ *наз.* **рапто́ўнасць**, -і, *ж.*

**РАПУ́ХА**, -і, *ДМ* -пу́се, *мн.* -і, -пу́х, *ж.* Палявая жывёліна сямейства бясхвостых земнаводных, падобная на жабу, з бугрыстай скурай шэрага або зялёнага колеру. *Шэрая р. Чаротная р.*

**РА́ПУШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Невялікая прэснаводная рыбка сямейства ласасёвых.

**РАРЫТЭ́Т**, -а, *М* -тэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Выключна рэдкая рэч, якая ўяўляе сабой музейную каштоўнасць. ‖ *прым.* **рарытэ́тны**, -ая, -ае.

**РАС...**, *прыстаўка.* Тое, што і *раз...*; пішацца замест «раз...» перад глухімі зычнымі, напр.: *раскусіць, расхапаць.*

**РА́СА**[1], -ы, *мн.* -ы, рас, *ж.* Група людзей, якая склалася гістарычна на пэўнай тэрыторыі, аб'яднаная агульнасцю спадчынных фізічных адзнак (колерам скуры, вачэй, валасоў, формай чэрапа), абумоўленых супольнасцю паходжання і першапачатковага расселення. *Белая р. Жоўтая р. Мангалоідная р. Негроідная р.* ‖ *прым.* **ра́савы**, -ая, -ае.

**РА́СА**[2], -ы, *мн.* -ы, рас, *ж.* У праваслаўнага духавенства: верхняе доўгае адзенне з шырокімі рукавамі.

**РАСА́**, -ы́, *мн.* ро́сы, рос, *ж.* Атмасферная вільгаць, якая пры паніжэнні тэмпературы асядае дробнымі вадзянымі кроплямі на паверхні раслін і розных наземных прадметаў у цёплую пару года. *Ранішняя р.* ○ **Мучністая раса** — хвароба раслін, пры якой на раслінах утвараецца налёт, падобны на муку. ‖ *прым.* **расяны́**, -а́я, -о́е, **расяны́**, -а́я, -о́е *і* **ро́сны**, -ая, -ае.

**РАСА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж., зб.* Маладыя расліны, вырашчаныя ў асобых умовах і прызначаныя для перасадкі ў адкрыты грунт. *Капусная р.* ‖ *прым.* **раса́дны**, -ая, -ае.

**РАСА́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяльнае месца для вырошчвання маладых раслін, расады.

**РАСАМА́ХА**, -і, *ДМ* -ма́се, *ж.* Драпежны звер, разнавіднасць куніцы з каштоўным футрам бурай афарбоўкі. ‖ *прым.* **расама́хавы**, -ая, -ае.

**РАСАХА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** З раздвоеным ствалом; віляваты. *Стары р. дуб.* **2.** Рагаты, з галіністымі рагамі. *Р. лось.*

**РАСІ́ЗМ**, -у, *м.* Сістэма поглядаў і чалавеканенавісніцкая палітыка, аснову якіх складаюць сцверджанні аб фізічнай і псіхічнай нераўнацэннасці чалавечых рас і аб рашаючым уплыве расавых адрозненняў на гісторыю і культуру грамадства. ‖ *прым.* **расі́сцкі**, -ая, -ае. *Р. рэжым.*

**РАСІ́ЙСКІ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да Расіі, расіян, звязаны з імі. *Расійская Федэрацыя. Р. парламент.* **2.** Тое, што і *рускі* (уст.).

**РАСІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Кропелька расы. ◊ **Макавай расінкі ў роце не было** (разм.) — нічога яшчэ не піў, не еў.

**РАСІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік расізму. ‖ *ж.* **расі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **расі́сцкі**, -ая, -ае.

**РАСІЯ́НІН**, -а, *мн.* -я́не, -я́н, *м.* **1.** Грамадзянін Расіі. **2.** Жыхар Расіі. ‖ *ж.* **расія́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**РАСКАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -куе́цца; *зак.* **1.** Згубіць падкову або падковы (пра каня). *За вясну раскаваліся коні.* **2.** Вызваліцца ад лёду, снегу. *Раскаваліся рэкі.* ‖ *незак.* **раско́ўвацца**, -аецца.

**РАСКАВА́ЦЬ**, -кую́, -куе́ш, -куе́; -куём, -куяце́, -кую́ць; -ку́й; -кава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Вызваліць ад падкоў. *Р. коней.* **2.** Вызваліць ад кайданоў. *Р. рукі.* **3.** *перан.* Зрабіць вольным, даць магчымасць поўнасцю праявіцца. *Р. ініцыятыву мас.* ‖ *незак.* **раско́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раско́ўванне**, -я, *н. і* **раско́ўка**, -і, *ДМ* -ко́ўцы, *ж.*

**РАСКАВЯЛІ́ЦЬ**, -вялю́, -ве́ліш, -ве́ліць; -ве́лены; *зак., што* (разм.). Рассячы, разваліць, глыбока параніць. *Р. нагу сякерай.* ‖ *незак.* **раскаве́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКА́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* расказаць. **2.** Тое, што і *аповед. Усе слухалі р. старога рыбака.*

**РАСКАЗА́ЦЬ**, -кажу́, -ка́жаш, -ка́жа; -кажы́; -ка́заны; *зак., што, аб кім-чым і пра каго-што.* Вусна паведаміць пра што-н. бачанае, чутае. *Р. пра ўсё перажытае.* ‖ *незак.* **раска́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раска́з**, -у, *м.*

**РАСКА́ЗЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто расказвае што-н. ‖ *ж.* **раска́зчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **раска́зчыцкі**, -ая, -ае.

**РАСКАЛАЦІ́ЦЬ**, -лачу́, -ло́ціш, -ло́ціць; -ло́чаны; *зак., што.* **1.** Інтэнсіўна мяшаючы, размяшаць, зрабіць раўнамерным раствор чаго-н. *Р. цеста на бліны.* **2.** Разбіць, размалаціць (разм.). *Р. збанок.* ‖ *незак.* **раскало́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКАЛАШМА́ЦІЦЬ**, -ма́чу, -ма́ціш, -ма́ціць; -ма́чаны; *зак., каго-што* (разм.). Разбіць, растрапаць; разграміць у бойцы. *Р. гарнізон праціўніка.*

**РАСКАЛМА́ЦІЦЦА** *гл.* калмаціцца.

**РАСКАЛМА́ЦІЦЬ** *гл.* калмаціць.

**РАСКАЛО́ЦЬ**, -калю́, -ко́леш, -ко́ле; -калі́; -ко́латы; *зак.* **1.** *гл.* калоць[2]. **2.** *перан., каго-што.* Раз'яднаць, унёсшы рознагалоссі, супярэчнасці. *Р. групоўку.* ‖ *не-*

*зак.* **раско́лваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раско́лванне**, -я, *н. і* **раско́л**, -у, *м.*

**РАСКАЛУПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). Калупаючы, разадраць, зрабіць дзірку ў чым-н. *Р. дзірку ў мяху.* ‖ *незак.* **раскалу́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКАЛЫХА́ЦЬ**, -лышу́, -лы́шаш, -лы́ша; -лышы́; -лыха́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Пачаць моцна калыхаць, прымусіць калыхацца. *Р. качэлі.* **2.** *што.* Калышучы, зрабіць хісткім, няўстойлівым. *Р. слупок.* **3.** *перан., каго (што).* Вывесці са стану апатыі, абыякавасці. *Пыталіся многа, ледзь раскалыхалі яго на адказы.* ‖ *незак.* **раскалы́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКАМПЛЕКТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* Парушыць камплект, камплектнасць чаго-н. ‖ *незак.* **раскамплекто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКАМЯЧЫ́ЦЬ**, -мячу́, -ме́чыш, -ме́чыць; -ме́чаны; *зак., што.* Разняць, расшчаміць, расціснуць. *Р. кулак.* ‖ *незак.* **раскаме́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Капаючы, раскідаць, разрыць што-н. *Р. снег. Р. курган.* **2.** *перан.* Дэталёва разабрацца ў чым-н.; знайсці. *Р. цікавыя матэрыялы ў архіве.* ‖ *незак.* **раско́пваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раско́пванне**, -я, *н. і* **раско́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* (да 1 знач.).

**РАСКАПУ́СЦІЦЦА**, -пу́шчуся, -пу́сцішся, -пу́сціцца; *зак.* (разм.). Празмерна шырока рассесціся, разваліцца.

**РАСКАРКАВА́ЦЬ**, -кую, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* Выняць корак. *Р. бутэлькі.* ‖ *незак.* **раскарко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКА́РКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пачаць моцна каркаць. *Вароны раскаркаліся.*

**РАСКАРМІ́ЦЬ**, -кармлю́, -ко́рміш, -ко́рміць; -ко́рмлены; *зак., каго.* Сытна кормячы, зрабіць тлустым, сытым. *Р. свіней.* ‖ *звар.* **раскармі́цца**, -кармлю́ся, -ко́рмішся, -ко́рміцца. ‖ *незак.* **раско́рмліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКАРЧАВА́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; -чу́й; -чава́ны *і* -чо́ваны; *зак., што.* Расчысціць ад пнёў, хмызняку. *Р. паляну ў лесе.* ‖ *незак.* **раскарчо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскарчо́ўванне**, -я, *н. і* **раскарчо́ўка**, -і, *ДМ* -чо́ўцы, *ж.*

**РАСКАСМА́ЦІЦЬ** *гл.* касмаціць.

**РАСКАТУ́РХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). **1.** Абудзіцца ад сну. *Кастусь доўга не мог р. ад сну.* **2.** *перан.* Выйсці са стану пасіўнасці, разварушыцца. *Нарэшце дзеці раскатурхаліся.* ‖ *незак.* **раскату́рхвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСКАТУ́РХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Нямоцна штурхаючы, трасучы, абудзіць ад сну, прымусіць прачнуцца. *Р. соннага.* **2.** *перан.* Вывесці са стану пасіўнасці, разварушыць. *Р. гледачоў.* ‖ *незак.* **раскату́рхваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКА́ЦІСТЫ**, -ая, -ае. Гулкі, моцны, з раскатамі. *Р. гром.* ‖ *наз.* **раска́цістасць**, -і, *ж.*

**РАСКАЦІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ко́ціцца; *зак.* **1.** Пакаціцца ў розныя бакі. *Мячы раскаціліся па падлозе.* **2.** Пакаціўшыся, разгарнуцца, раскруціцца. *Дыван раскаціўся на ўсю хату.* **3.** Прагучаць моцна, раскаціста. *Рэха раскацілася ў гарах.* ‖ *незак.* **раско́чвацца**, -аецца.

**РАСКАЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Зрабіць тонкім, качаючы чым-н. па паверхні. *Р. цеста.* ‖ *незак.* **раска́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раска́чванне**, -я, *н.*

**РАСКАШАВА́ЦЦА**, -шу́юся, -шу́ешся, -шу́ецца; -шу́йся; *незак.* (разм.). **1.** Жыць у раскошы, мець усяго ў дастатку. **2.** і (рэдка) *зак.* Жыць (пачаць жыць) або размяшчацца (размясціцца) дзе-н. вельмі свабодна, на вялікай плошчы. *Раскашуецца адна ў такой вялікай кватэры.* **3.** *перан.* Буйна расці на прыволлі. *Раскашуецца пад плотам крапіва.*

**РАСКА́ШЛЯЦЦА**, -яюся, -яешся, -яецца; *зак.* Пачаць моцна і доўга кашляць. *Хворы раскашляўся.*

**РАСКАШНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* (разм.). Станавіцца раскошным, раскашнейшым. ‖ *зак.* **параскашне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е. *Пасля перастаноўкі мэблі ў пакоі параскашнела* (безас.).

**РАСКАШЭ́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* (разм.). Пайсці на значныя выдаткі, не паскупіцца. *Р. на падарунак сябру.* ‖ *незак.* **раскашэ́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСКА́ЯЦЦА**, -ка́юся, -ка́ешся, -ка́ецца; -ка́йся; *зак.* З жалем пашкадаваць аб зробленым учынку, прызнаўшы яго памылковым або благім. ‖ *незак.* **раска́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. *Цяпер ён раскайваецца.* ‖ *наз.* **раска́янне**, -я, *н. Р. прыйшло позна.*

**РАСКВА́СІЦЬ**, -ква́шу, -ква́сіш, -ква́сіць; -ква́шаны; *зак., што* (разм.). **1.** Размачыць, зрабіць гразкім. *Дарогу расквасіла* (безас.), *не праехаць.* **2.** Разбіць да крыві (нос, твар). *Р. нос.* ‖ *незак.* **расква́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКВАТАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго-што.* Размясціць па кватэрах. *Р. полк.* ‖ *незак.* **расквата-ро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **раскватарава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *незак.* **раскватаро́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **раскватарава́нне**, -я, *н.*

**РАСКВЕ́ЦІЦЬ**, -кве́чу, -кве́ціш, -кве́ціць; -кве́чаны *і* **РАСКВЯЦІ́ЦЬ**, -квячу́, -квяці́ш, -квяці́ць; -кве́чаны; *зак., што.* Убраць што-н. у яркія колеры; зрабіць рознакаляровым. *Святочны салют расквеціў неба.* ‖ *незак.* **раскве́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскве́чванне**, -я, *н.*

**РАСКВІТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Расплаціцца за што-н., аддаць доўг каму-н. *Р. з крэдыторамі.* **2.** *перан., з кім.* Адпомсціць каму-н. за ўчыненую крыўду, зло. *Р. з ворагам.* **3.** Расстацца з кім-, чым-н. назаўсёды, пакінуць каго-, што-н., пазбавіцца ад чаго-н. *Р. з горадам.* ‖ *незак.* **раскві́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСКВІТНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Расцвісці, распусціцца (пра кветкі, расліны). *Цюльпаны ўжо расквітнелі.* **2.** *перан.* Стаць прыгожым, здаровым, дасягнуць росквіту. *Расквітнела дзяўчына.* **3.** *перан.* Дасягнуць высокай ступені развіцця, праявіцца з вялікай сілай. *Расквітнеў талент мастака.* ‖ *наз.* **ро́сквіт**, *М* -віце, *м.*

**РАСКВЯЦІ́ЦЬ** *гл.* расквеціць.

**РАСКІ́ДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць непрыгодным, разбурыцца, разваліцца на часткі. *Печ раскідалася.* **2.** *перан.* Разладзіцца, расстроіцца. *Вяселле раскідалася.* **3.** Размясціцца на вялікай прасторы, далёка адзін ад аднаго. *Рэдкія бярозкі раскідаліся на пагорку.* **4.** Раскінуць рукі, ногі (у сне). **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць непрыгодным, немагчымым для язды (пра дарогу напрадвесні і ранняй вясной; разм.). **6.** Захапіцца кіданнем чаго-н. (разм.). **7.** Нарадзіць дзіця (разм.). **8.** Заняцца адначасова многімі справамі, не засяроджваючыся ні на чым. ‖ *незак.* **раскіда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **раскі́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСКІДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* раскі́дацца. **2.** Не цэнячы чаго-н., дарэмна траціць, не імкнуцца ўтрымаць што-н. пры сабе (разм.). *Не было магчымасці р. часам.*

**РАСКІ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Кідаючы, размясціць у розных месцах па паверхні або пакласці ў беспарадку. *Р. сена.* **2.** *перан., каго-што.* Прымусіць разысціся, раз'ехацца ў розных напрамках; размясціць у розных месцах. *Жыццё раскідала сяброў па свеце.* **3.** *што.* Разбурыць, разваліць. *Р. старую хату.* **4.** *што.* Дарэмна патраціць. *Куды грошы раскідаў — не ведаю.* **5.** *што.* Прааараць уроскідку. *Р. дзве паласы.* ‖ *незак.* **раскіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **раскі́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскіда́нне**, -я, *н.*, **раскі́дванне**, -я, *н. і* **ро́скід**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 знач.).

**РАСКІДА́ЦЬ** *гл.* раскі́даць.

**РАСКІ́ДВАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто займаецца раскіданнем чаго-н. *Р. сена.* **2.** Прыстасаванне для раскідвання чаго-н. *Механічны р. угнаенняў.*

**РАСКІ́ДВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** *гл.* раскідацца. **2.** Дарэмна траціць, не імкнуцца ўтрымаць што-н. пры сабе; раскідацца. *Р. грашыма.*

**РАСКІ́ДВАЦЬ** *гл.* раскі́даць.

**РАСКІ́ДЗІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** З шырока раскінутымі галінамі. *Р. дуб.* **2.** Раскінуты, размешчаны на вялікай прасторы. *Раскідзістая вёска.* ‖ *наз.* **раскі́дзістасць**, -і, *ж.*

**РАСКІ́ДЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Неашчадны, неэканомны. *Р. гаспадар.* ‖ *наз.* **раскі́длівасць**, -і, *ж.*

**РАСКІДНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Такі, які можна раскінуць, раскласці; раскладны. *Раскідное крэсла.* **2.** Прызначаны для раскідання чаго-н. (спец.). *Раскідная сеялка.* **3.** Які робіцца шляхам раскідання, рассейвання. *Раскідное ўнясенне ўгнаенняў.*

**РАСКІЛЗА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго.* Вызваліць ад укладзеных у рот цугляў. *Р. каня.* ‖ *незак.* **раскі́лзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -кі́нь; -нуты; *зак., што.* **1.** Шырока развесці, распасцерці ў розныя бакі. *Р. рукі.* **2.** Разаслаць, разгарнуць на паверхні што-н. *Р. дыван на падлозе.* **3.** Знайшоўшы месца, паставіць, размясціць што-н. *Р. палаткі.* **4.** Раскідаць, рассыпаць па чым-н. што-н. *Р. сена.*

**РАСКІПЕ́ЦЦА**, -плю́ся, -пі́шся, -пі́цца; -пі́мся, -пі́цеся, -пя́цца; -пі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць моцна кіпець. *Вада раскіпелася.* **2.** *перан.* Моцна разгарачыцца, разгневацца (разм.). *Ён можа хутка р.*

**РАСКІРЭ́КА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -рэ́цы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -рэ́к, (разм.). Пра чалавека з няўклюдна расстаўленымі нагамі або наогул пра што-н. няўклюднае, растапыранае. *Не стол, а р.*

**РАСКІРЭ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што* (разм.). Шырока расставіць (ногі). ‖ *незак.* **раскірэ́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКІ́СЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які раскіс, ператварыўся ў вязкае месіва. *Раскіслая гліна.* **2.** *перан.* Расслаблены, разамлелы. *Р. твар.* ‖ *наз.* **раскі́сласць**, -і, *ж.*

**РАСКІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; раскі́с, -сла; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пад дзеяннем вільгаці, вады ператварыцца ў вязкае месіва, размокнуць, разбухнуць. *Зямля раскісла. Боты раскіслі.* **2.** *перан.* Расслабіцца, разамлець (ад гарачыні, выпіўкі і пад.). *Р. на сонцы. Выпіў шклянку і раскіс.* **3.** *перан.* Паддацца залішняй чуллівасці. ‖ *незак.* **раскіса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАСКЛА́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** *гл.* раскласці[1]. **2.** Графік, у якім указваецца час, месца, паслядоўнасць правядзення чаго-н. *Р. на тыдзень. Вывесіць р. заняткаў.* ○ **Штатны расклад** — дакумент, які вызначае склад работнікаў якой-н. установы, прадпрыемства з указаннем іх пасад і акладаў.

**РАСКЛАДА́ННЕ**[1] *гл.* раскласці[1], разлажыць[1].

**РАСКЛАДА́ННЕ**[2] *гл.* раскласці[2], разлажыць[2].

**РАСКЛАДА́ЦЦА**[1] *гл.* раскласціся[1], разлажыцца[1].

**РАСКЛАДА́ЦЦА**[2] *гл.* раскласціся[2].

**РАСКЛАДА́ЦЬ**[1] *гл.* раскласці[1], разлажыць[1].

**РАСКЛАДА́ЦЬ**[2] *гл.* раскласці[2], разлажыць[2].

**РАСКЛА́ДВАННЕ**[1] *гл.* раскласці[1], разлажыць[1].

**РАСКЛА́ДВАННЕ**[2] *гл.* разлажыць[2].

**РАСКЛА́ДВАЦЦА** *гл.* раскласціся[1], разлажыцца[1].

**РАСКЛА́ДВАЦЬ** *гл.* раскласці[1], разлажыць[1], разлажыць[2].

**РАСКЛА́ДКА** *гл.* раскласці[1].

**РАСКЛАДНЫ́**, -а́я, -о́е. Такі, які можна разлажыць, рассунуць, разагнуць у месцах згібу. *Р. ложак.*

**РАСКЛАДУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). Лёгкі раскладны ложак. *Спаць на раскладушцы.* ‖ *прым.* **раскладу́шачны**, -ая, -ае.

**РАСКЛА́НЯЦЦА**, -яюся, -яешся, -яецца; *зак.* Пакланіцца адзін аднаму пры сустрэчы або расставанні. *Ветліва р.* ‖ *незак.* **раскла́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСКЛАСІФІКАВА́ЦЬ** *гл.* класіфікаваць.

**РАСКЛА́СЦІ**[1], -кладу́, -кладзе́ш, -кладзе́; -кладзём, -кладзяце́, -кладу́ць; -кладзі́; -кла́дзены; *зак., што.* **1.** Размясціць па розных месцах у пэўным парадку. *Р. тавары. Р. яблыкі па кішэнях.* **2.** Палажыць, расправіўшы або разгарнуўшы. *Р. карту.* **3.** Размеркаваць паміж кім-н. *Р. растрачаную суму на траіх.* **4.** Склаўшы гаручы матэрыял, запаліць. *Р. вогнішча.* ‖ *незак.* **раскладаць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **раскла́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскладанне**, -я, *н.*, **раскла́дванне**, -я, *н.*, **раскла́д**, -у, *М* -дзе, *м. і* **раскла́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.*

**РАСКЛА́СЦІ**[2], -кладу́, -кладзе́ш, -кладзе́; -кладзём, -кладзяце́, -кладу́ць; -кладзі́; -кла́дзены; *зак., што.* Вылучыць састаўныя часткі ў чым-н. *Р. ваду на вадарод і кісларод.* ‖ *незак.* **раскладаць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **раскладанне**, -я, *н.*

**РАСКЛА́СЦІСЯ**[1], -кладу́ся, -кладзе́шся, -кладзе́цца; -кладзёмся, -кладзяце́ся, -кладу́цца; -кладзі́ся; *зак.* **1.** Раскласці, размясціць свае рэчы, маёмасць (разм.). *Р. са сваімі кнігамі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыняць раскладзены выгляд. *Крэсла лёгка расклалася.* ‖ *незак.* **раскладацца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **раскла́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСКЛА́СЦІСЯ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -кладзе́цца; *зак.* Раздзяліцца на састаўныя часткі, элементы. ‖ *незак.* **раскладацца**, -а́ецца.

**РАСКЛЕ́ІЦЦА**, -кле́юся, -кле́ішся, -кле́іцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разысціся ў месцах склейкі. *Канверт расклеіўся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Разладзіцца, расстроіцца (разм.). *Вяселле расклеілася.* **3.** *перан.* Занемагчы, стаць вялым, слабым, заняпасці духам (разм.). *Бабуля занемагла, зусім расклеілася на старасці год.* ‖ *незак.* **раскле́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСКЛЕ́ІЦЬ**, -кле́ю, -кле́іш, -кле́іць; -кле́ены; *зак., што.* **1.** Разняць склееныя часткі чаго-н. *Р. канверт.* **2.** Наклеіць у многіх месцах. *Р. афішы.* ‖ *незак.* **раскле́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскле́йванне**, -я, *н. і* **раскле́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.*

**РАСКЛЁШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., што.* Расшырыць унізе пры кройцы. *Р. спадніцу.* ‖ *незак.* **расклёшваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКЛІНАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ну́ецца; *зак.* Расшчапіцца ад увагнанага кліна. ‖ *незак.* **расклінóўвацца**, -аецца.

**РАСКЛІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* **1.** Забіўшы клін, расшчапіць. **2.** Выцягнуць, вырваць з чаго-н. забіты клін. ‖ *незак.* **расклінóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКЛЯВА́ЦЬ**, -клюю́, -клюе́ш, -клюе́; -клюём, -клюяце́, -клюю́ць; -клю́й; -кляваны; *зак., што.* **1.** Клюючы, з'есці ўсё. *Куры расклявалі зерне.* **2.** Клюючы, пашкодзіць што-н. або пашырыць пашкоджанне ў чым-н. *Груганнё расклявала рану.* ‖ *незак.* **расклёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКЛЯПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Разняць на часткі што-н. скляпанае. *Р. канструкцыю.* **2.** Распляскаць, расплюшчыць чым-н. цяжкім, цвёрдым. *Р. заклёпку.* ‖ *незак.* **расклёпваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расклёпванне**, -я, *н. і* **расклёпка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.*; *прым.* **расклёпачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**РАСКО́Л**[1], -у, *м.* **1.** *гл.* раскалоць. **2.** Месца, па якім што-н. расколата або раскалолася; трэшчына. **3.** *перан.* Раздзяленне каго-, чаго-н. на групы, часткі, абумоўленае наяўнасцю рознагалоссяў. *Р. у грамадстве.* **4.** Рэлігійна-грамадскі рух у Расіі, які ўзнік у сярэдзіне 17 ст., быў накіраваны супраць афіцыйнай царквы і закончыўся ўтварэннем стараверства.

**РАСКО́Л**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Хуліган, задзіра. *Трэба супакоіць гэтага раскола.*

**РАСКО́ЛВАННЕ** *гл.* раскалоць.

**РАСКО́ЛВАЦЬ** *гл.* раскалоць.

**РАСКО́ПВАННЕ** *гл.* раскапаць.

**РАСКО́ПВАЦЬ** *гл.* раскапаць.

**РАСКО́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* **1.** *гл.* раскапаць. **2.** *мн.* Работы па выяўленні чаго-н. схаванага ў зямлі, звычайна прадметаў старажытнасці, а таксама месца, дзе праводзяцца падобныя работы. *Археалагічныя раскопкі.* ‖ *прым.* **раско́пачны**, -ая, -ае.

**РАСКО́РМЛІВАЦЬ** *гл.* раскарміць.

**РАСКО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Распорка, якая ставіцца пад касым вуглом да гарызантальных або вертыкальных частак канструкцыі. ‖ *прым.* **раско́сны**, -ая, -ае.

**РАСКО́СЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае касы разрэз (пра вочы). **2.** З касавокасцю, пры якой зрэнкі скіраваны ў бок ад носа. ‖ *наз.* **раско́сасць**, -і, *ж.*

**РАСКО́ЎВАННЕ** *гл.* раскаваць.

**РАСКО́ЎВАЦЦА** *гл.* раскавацца.

**РАСКО́ЎВАЦЬ** *гл.* раскаваць.

**РАСКО́ЎЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). **1.** Яздой або катаннем зрабіць слізкім, коўзкім. *Р. сцежку.* **2.** Размяць, раскідаць, размазаць (нагамі, целам). *Р. абцасамі зямлю. Р. сцірту саломы.* ‖ *незак.* **раско́ўзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКО́ЎКА** *гл.* раскаваць.

**РАСКО́ЧВАЦЦА** *гл.* раскаціцца.

**РАСКО́ША**, -ы, *ж.* **1.** Празмерны дастатак, багацце; камфорт. *Жыць у раскошы.* **2.** Што-н. лішняе, не першай неабходнасці. *Непатрэбная р.* **3.** Прыроднае багацце, пышнасць расліннасці. *Р. паўднёвай прыроды.* **4.** Прастора, свабода. *Пасля гарадской мітусні, цеснаты ў лесе — сапраўдная р.!*

**РАСКО́ШНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вызначаецца багаццем, раскошаю. *Р. кабінет. Р. касцюм.* **2.** Пышны, прыгожы. *Раскошныя валасы.* **3.** Прасторны, велічны, прыгожы. *Р. палац.* ‖ *наз.* **раско́шнасць**, -і, *ж.*

**РАСКРА́СЦІ**, -кра́ду, -кра́дзеш, -кра́дзе; раскра́ў, -кра́ла; -кра́дзены; *зак., каго-што.* Крадучы па частках, расцягнуць, развалачы што-н. поўнасцю, да канца. *Р. маёмасць, гаспадарку.* ‖ *незак.* **раскрада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **раскра́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскрада́нне**, -я, *н. і* **раскра́дванне**, -я, *н.*

**РАСКРО́ІЦЬ**, -кро́ю, -кро́іш, -кро́іць; -кро́ены; *зак., што.* **1.** Кроячы, разрэзаць. *Р. матэрыял на касцюмы.* **2.** Парэзаць на часткі (пераважна пра хлеб). **3.** Нанесці глыбокую сечаную рану, рассячы (разм.). ‖ *незак.* **раскро́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскро́йванне**, -я, *н. і* **раскро́й**, -ю, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **раскро́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**РАСКРУЦІ́ЦЦА**, -ручу́ся, -ру́цішся, -ру́ціцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Развіцца (пра што-н. звітае, скручанае). *Вяроўка раскруцілася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разгарнуцца (пра што-н. скручанае). *Пакунак раскруціўся.* **3.** Вызваліцца ад чаго-н. наматанага, накручанага. *Раскруцілася цэлая шпулька нітак.* **4.** Пачаць круціцца з узрастаючай хуткасцю, сілай (разм.). *Кола раскруцілася.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Павялічыцца ў дыяметры ад кручэння, свідравання. *Адтуліна раскруцілася.* **6.** *перан.* Дабіцца поспеху ў якой-н. справе, стаць вядомым, папулярным (разм.). ‖ *незак.* **раскру́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСКРУЦІ́ЦЬ**, -ручу́, -ру́ціш, -ру́ціць; *зак., што.* **1.** Развіць звітае, скручанае. *Р. дрот.* **2.** Разгарнуць, разраўняць (што-н. скручанае). *Р. вуду.* **3.** Разгарнуць, зняць (што-н. наматанае, накручанае). *Р. шалік.* **4.** Прымусіць круціцца з узрастаючай хуткасцю. *Р. кола.* **5.** Пашырыць у дыяметры. *Р. дзірку.* **6.** *перан.* Зрабіць каго-н. вядомым, папулярным (разм.). *Р. маладога спевака.* ‖ *незак.* **раскру́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскру́чванне**, -я, *н. і* **раскру́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**РАСКРЫЖАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* раскрыжаваць. **2.** *мн.* -і, -яў. Разыходжанне дарог у выглядзе крыжа.

**РАСКРЫЖАВА́ЦЬ**, -жу́ю, -жу́еш, -жу́е; -жу́й; -жава́ны; *зак., каго-што.* Раскінуць крыжам (рукі). ‖ *незак.* **раскрыжо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **раскрыжо́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **раскрыжава́нне**, -я, *н.*

**РАСКРЫТЫКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., каго-што.* Падвергнуць рэзкай крытыцы. *Р. выступленне. Р. парушальнікаў працоўнай дысцыпліны.* ‖ *незак.* **раскрытыко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКРЫ́ЦЦА**, -ры́юся, -ры́ешся, -ры́ецца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разгарнуцца, раскласціся, распасцерціся (пра што-н. складзенае). *Парашут раскрыўся. Парасон раскрыўся.* **2.** Вызваліцца ад таго, чым быў пакрыты; агаліцца. *Дзіця раскрылася.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць бачным, адкрыцца вачам. *Перад вачамі раскрыўся прыгожы краявід.* **4.** Праявіць, выявіць сябе; адкрыцца. *Р. перад сябрам.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць вядомым; выкрыцца. *Злачынства раскрылася.* ‖ *незак.* **раскрыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАСКРЫ́ЦЬ**, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак., што.* **1.** Адкрыць шырока, разгарнуць; распасцерці што-н. складзенае. *Р. дзверы. Р. кнігу. Р. парасон.* **2.** Вызваліць ад таго, што накрывае каго-, што-н.; агаліць. **3.** Выявіць, зрабіць вядомым што-н. невядомае; выкрыць. *Р. акцёрскія здольнасці. Р. тайну. Р. злачынства.* **4.** Растлумачыць, паказаць сутнасць чаго-н. *Р. змест твора.* **5.** Знайсці, устанавіць, адкрыць у выніку назіранняў, даследаванняў. *Р. стаянку першабытнага чалавека.* **6.** Расказаць аб сваіх думках, пачуццях. *Р. свае думкі сябрам.* ‖ *незак.* **раскрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **раскрыццё**, -я́, *н.*

**РАСКРЫШЫ́ЦЦА** *гл.* крышыцца.

**РАСКРЫШЫ́ЦЬ** *гл.* крышыць.

**РАСКУДА́ХТАЦЦА**, -хчуся, -хчашся, -хчацца; -хчыся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць моцна і доўга кудахтаць. *Куры раскудахталіся.* **2.** *перан.* Раскрычацца без толку, без прычыны (разм.).

**РАСКУДЗЕ́ЛІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ліцца; *зак.* (разм.). Растрапацца, раздзяліцца на валокны. *Вяроўка раскудзелілася.* ‖ *незак.* **раскудзе́львацца**, -аецца.

**РАСКУДЗЕ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што* (разм.). Растрапаць, раздзяліць на валокны; раскудлаціць. *Вецер раскудзеліў валасы.* ‖ *незак.* **раскудзе́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКУДЛА́ЦІЦЦА**, -ла́чуся, -ла́цішся, -ла́ціцца; *зак.* (разм.). Растрапацца, збіцца ў кудлы (пра валасы, прычоску). ‖ *незак.* **раскудла́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСКУДЛА́ЦІЦЬ**, -ла́чу, -ла́ціш, -ла́ціць; -ла́ч; -ла́чаны; *зак., што* (разм.). Растрапаць; зрабіць кудлатым. ‖ *незак.* **раскудла́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСКУДЛА́ЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *раскудлаціцца.*

**РАСКУДЛА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -ла́ч; -чаны; *зак., што* (разм.). Тое, што і *раскудлаціць.*

**РАСКУЛА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што* (гіст.). Пазбавіць заможных сялян (кулакоў) зямлі, сродкаў вытворчасці і палітычных правоў. ‖ *незак.* **раскула́чваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **раскула́чванне**, -я, *н.*

**РАСКУПІ́ЦЬ**, -куплю́, -ку́піш, -ку́піць; -ку́плены; *зак., што* і *без дап.* (разм.). Купіць па частках усё (пра некалькіх, многіх пакупнікоў). *Р. кнігі. Р. увесь тавар.* ‖ *незак.* **раскупля́ць**, -я́е.

**РАСКУПО́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -рыцца; *зак.* Раскрыцца (пра што-н. закупоранае). ‖ *незак.* **раскупо́рвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **раскупо́рванне**, -я, *н.*

**РАСКУПО́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* Адкрыць закупоранае. *Р. бутэльку.* ‖ *незак.* **раскупо́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раскупо́рванне**, -я, *н.*

**РАСКУРЫ́ЦЦА**, -куру́ся, -ку́рышся, -ку́рыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Распаліцца, разгарэцца (пра папяросу, цыгару, люльку). **2.** Курыць не перастаючы (разм.). ‖ *незак.* **раску́рвацца**, -аецца (да 1 знач.).

**РАСКУРЫ́ЦЬ**, -куру́, -ку́рыш, -куры́ць; -ку́раны; *зак., што.* **1.** Распаліць (папяросу, цыгару, люльку). **2.** Выкурыць (разм.). ‖ *незак.* **раску́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раску́рванне**, -я, *н.*

**РАСКУСІ́ЦЬ**, -кушу́, -ку́сіш, -ку́сіць; -ку́шаны; *зак.* **1.** *што.* Кусаючы, раздзяліць на часткі. *Р. арэх.* **2.** *перан., каго-што.* Распазнаць, добра ўведаць (разм.). *Я даўно раскусіў гэтага чалавека. Р. задуму хітраца.* ‖ *незак.* **раску́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **раску́сванне**, -я, *н.*

**РАСКУ́ЦЬ**, -кую́, -куе́ш, -куе́; -куём, -куяце́, -кую́ць; -ку́й; -ку́ты; *зак., каго-што.* Тое, што і *раскаваць.*

**РАСЛІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -лі́н, *ж.* Арганізм, які звычайна развіваецца ў нерухомым становішчы, атрымлівае пажыўныя рэчывы з глебы і паветра; адна з найбольш пашыраных форм існавання жывой матэрыі. *Вывучаць расліны.* ‖ *памянш.-ласк.* **раслі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **раслі́нны**, -ая, -ае. *Р. свет.*

**РАСЛІНАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па раслінаводстве.

**РАСЛІНАВО́ДСТВА**, -а, *н.* **1.** Вырошчванне культурных сельскагаспадарчых раслін як галіна сельскай гаспадаркі. *Прадукцыя р.* **2.** Навука аб культурных раслінах і іх вырошчванні. ‖ *прым.* **раслінаво́дчы**, -ая, -ае.

**РАСЛІ́ННАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Сукупнасць раслін, расліннае покрыва якой-н. мясцовасці. *Р. Каўказа.* **2.** Валасы на целе, галаве, твары (разм.).

**РАСЛІ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* расліна. **2.** Які складаецца з раслін. *Р. корм.* **3.** Прыгатаваны, здабыты з раслін. *Р. тлушч.* **4.** Які жыве на расліне, раслінах. *Расліннная тля.* **5.** З малюнкам, адбіткам раслін. *Р. арнамент.*

**РАСНІ́ЧКІ**, -чак, *адз.* раснічка, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* (спец.). Тонкія ніце- або шчацінкападобныя адросткі на паверхні клетак жывёл, раслін. ‖ *прым.* **расні́чны**, -ая, -ае. *Расні́чныя чэрві.*

**РАСО́Л** -у, *м.* **1.** Салёная вада з прыправамі для засолкі, вымочвання харчовых прадуктаў. **2.** Вадкасць, насычаная сокамі засоленых у ёй прадуктаў. *Капуста з расолам.* **3.** Моцна насычаная солямі прыродная вада. **4.** Водны раствор солей, які прымяняецца ў тэхніцы (спец.). ‖ *прым.* **расо́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**РАСО́ЛЬНІК**, -у, *м.* Мясны суп з салёнымі агуркамі.

**РАСПАВІ́ЦЬ**, -паўю́, -паўе́ш, -паўе́; -паўём, -паўяце́, -паўю́ць; -паві́; -паві́ты; *зак., каго.* Вызваліць ад пялёнак. *Р. дзіця.* ‖ *незак.* **распавіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **распаві́цца**, -паўю́ся, -паўе́шся, -паўе́цца; -паўёмся, -паўяце́ся, -паўю́цца; -паві́ся; *незак.* **распавіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАСПАГО́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзіцца; *безас., зак.* Пра наступленне яснага, пагоднага надвор'я. *К вечару распагодзілася.* ‖ *незак.* **распаго́джвацца**, -аецца.

**РАСПА́Д** *гл.* распасціся.

**РАСПАДА́ЦЦА** *гл.* распасціся.

**РАСПАДЗЕ́ННЕ** *гл.* распасціся.

**РАСПАЗНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* **1.** Вызначыць, пазнаць па якіх-н. прыкметах. *Р. хваробу.* **2.** Адрозніць, вылучыць сярод падобных. **3.** Пазнаць у падрабязнасцях, дэталях. *Р. мясцовасць.* ‖ *незак.* **распазнава́ць**, -наю́, -нае́ш, -нае́; -наём, -наяце́, -наю́ць; -нава́й. ‖ *наз.* **распазна́нне**, -я, *н. і* **распазнава́нне**, -я, *н.*, *прым.* **распазнава́льны**, -ая, -ае. *Р. знак.*

**РАСПАКАВА́ЦЦА**, -ку́юся, -ку́ешся, -ку́ецца; -ку́йся; *зак.* **1.** Распакаваць свае рэчы (разм.). *Прыехаўшы дадому, распакаваліся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вызваліцца ад упакоўкі, развязацца. *Пакет распакаваўся.* ‖ *незак.* **распако́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **распако́ўванне**, -я, *н. і* **распако́ўка**, -і, *ДМ* -ко́ўцы, *ж.* (да 1 знач.).

**РАСПАКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* Вызваліць ад упакоўкі. *Р. багаж.* ‖ *незак.* **распако́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распако́ўванне**, -я, *н. і* **распако́ўка**, -і, *ДМ* -ко́ўцы, *ж.*

**РАСПАЛАСАВА́ЦЬ** *гл.* паласаваць.

**РАСПА́ЛАЧНЫ**, -ая, -ае. Які прызначаецца, служыць для распальвання.

**РАСПАЛІ́ЦЦА**, -палю́ся, -па́лішся, -па́ліцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Моцна нагрэцца ад агню, жару. *Жалеза распалілася дачырвана.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць гарэць. *Дровы распаліліся.* **3.** *перан.* Моцна ўзрушыцца, расхваляваца; разгневацца. ‖ *незак.* **распа́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСПАЛІ́ЦЬ**, -палю́, -па́ліш, -па́ліць; -па́лены; *зак.* **1.** *што.* Прымусіць гарэць. *Р. вогнішча.* **2.** *што.* Моцна нагрэць агнём дачырвана. *Р. жалеза.* **3.** *перан., каго-што.* Выклікаць узбуджэнне. *Р. гнеў.* **4.** *перан.* Развязаць, распачаць (барацьбу, вайну). *Р. пажар вайны.* ‖ *незак.* **распа́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распа́льванне**, -я, *н.*

**РАСПАНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які распанеў. *Р. хлопец.*

**РАСПАНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Разгультаіцца, распусціцца; стаць пераборлівым. *Ну ты ўжо зусім распанеў.*

**РАСПАРА́ДАК**, -дку, *м.* Устаноўлены парадак у якой-н. справе. *Р. дня. Правілы ўнутранага распарадку.*

**РАСПАРАДЖА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* распарадзіцца. **2.** Кіраваць, ведаць кім-, чым-н. *У доме ўсім рспараджаецца бацька.* **3.** Весці сябе як гаспадар; камандаваць. *Р. ў чужой хаце.*

**РАСПАРАДЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* распарадзіцца. **2.** *мн.* -і, -яў. Загад, пастанова. *Аддаць р.*

**РАСПАРАДЗІ́ЦЦА**, -джу́ся, -дзі́шся, -дзі́цца; -дзі́мся, -дзіце́ся, -дзя́цца; *зак.* **1.** Аддаць загад; загадаць. *Р. наконт адпраўкі экспедыцыі.* **2.** Паклапаціцца аб выкананні чаго-н. належным чынам. *Р. па-гаспадарску грашыма.* ‖ *незак.* **распараджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **распараджэ́нне**, -я, *н.*

**РАСПАРА́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Які ўмее добра кіраваць, распараджацца чым-н. *Р. начальнік.* ‖ *наз.* **распара́длівасць**, -і, *ж.*

**РАСПАРА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая адказвае за даручаную ёй справу і непасрэдна кіруе ёй. *Р. работ.* ‖ *ж.* **распара́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **распара́дчыцкі**, -ая, -ае.

**РАСПАРО́ЦЦА** *гл.* пароцца[2].

**РАСПАРО́ЦЬ**[1] *гл.* пароць[1].

**РАСПАРО́ЦЬ**[2] *гл.* пароць[2].

**РАСПА́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Размякчыцца, размякнуць пад дзеяннем пары, гарачай вады. *Рэпа добра распарылася.* **2.** Разагрэцца да поту; разгарачыцца (разм.). *Р. ў лазні.* ‖ *незак.* **распа́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСПА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго-што.* **1.** Размякчыць парай, варам. *Р. зерне.* **2.** Разагрэць да поту; разгарачыць (разм.). *Р. цела.* ‖ *незак.* **распа́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распа́рванне**, -я, *н. і* **распа́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 1 знач.).

**РАСПАСЦЕ́РЦІ**, -стру́, -стрэ́ш, -стрэ́; -стрё́м, -страце́, -стру́ць; распасцёр, -сцёрла; -стры́; -сцёрты; *зак., што.* **1.** Шырока раскінуць (рукі, крылы). **2.** Роўна, свабодна разгарнуць, разаслаць што-н. на паверхні чаго-н. *Р. коўдру на канапе.* **3.** *перан., на каго-што.* Пашырыць сферу дзеяння чаго-н.; распаўсюдзіць. *Р. сваю ўладу.* ‖ *незак.* **распасціра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАСПАСЦЕ́РЦІСЯ**, -стру́ся, -стрэ́шся, -стрэ́цца; -стрё́мся, -страце́ся, -стру́цца; распасцёрся, -сцёрлася; -стры́ся; *зак.* **1.** Легчы або паваліцца, шырока расхінуўшы рукі, ногі. *Ранены распасцёрся на зямлі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Заняць сабой шырокі абшар, вялікую прастору. *Над зямлёй распасцёрся купал неба.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Пашырыць сферу свайго дзеяння, уплыву. *Дзейнасць мясцовых эколагаў распасцерлася на суседнія раёны.* ‖ *незак.* **распасціра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАСПА́СЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -падзе́цца; распа́ўся, -па́лася; *зак.* **1.** Раскласціся на састаўныя часткі; разваліцца. *Малекула распалася на атамы.* **2.** *перан.* Раздзяліўшыся на часткі, перастаць існаваць. *Аб'яднанне распалася.* ‖ *незак.* **распада́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **распадзе́нне**, -я, *н. і* **распа́д**, -у, *М* -дзе, *м.*

**РАСПАТРАШЫ́ЦЬ**, -рашу́, -ро́шыш, -ро́шыць; -ро́шаны; *зак., каго-што.* **1.** Выняць вантробы. *Р. рыбу.* **2.** Выняць тое, што знаходзіцца ўнутры (разм.). *Р. ранец.*

**РАСПАЎЗЦІ́СЯ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -зе́цца; -зёмся, -зяце́ся, -зу́цца; распо́ўзся, -паўзла́ся, -ло́ся; *зак.* **1.** Папаўзці ў розныя бакі. *Мурашкі распаўзліся па сцежцы.* **2.** Расплыцца, расцячыся на паверхні чаго-н., страціць пэўныя абрысы. *Чарнільная пляма распаўзлася па паперы.* **3.** Разваліцца, разлезціся ад доўгай носкі, ад старасці (разм.). *Куртка распаўзлася па швах.* ‖ *незак.* **распаўза́цца**, -а́ецца.

**РАСПАЎНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які распаўнеў, стаў поўны, тоўсты. ‖ *наз.* **распаўне́ласць**, -і, *ж.*

**РАСПАЎНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Стаць поўным, тоўстым. *Р. за зіму.*

**РАСПАЎСЮ́ДЖВАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца распаўсюджваннем чаго-н. *Грамадскі р. друку.* ‖ *ж.* **распаўсю́джвальніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**РАСПАЎСЮ́ДЗІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -дзіцца; *зак.* **1.** Ахапіць сабой большае кола з'яў, асоб або прадметаў, большую тэрыторыю; пашырыцца. *Новыя тэхналогіі хутка распаўсюджваюцца ў розных сферах вытворчасці.* **2.** Стаць вядомым многім. *Чуткі распаўсюдзіліся па горадзе.* ‖ *незак.* **распаўсю́джвацца**, -аецца.

**РАСПАЎСЮ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* **1.** Пашырыць сферу дзеяння на каго-, што-н. *Р. інавацыйны вопыт.* **2.** Зрабіць што-н. вядомым, даступным многім. *Р. вучэнне.* **3.** Раздаць, прадаць многім. *Р. латарэйныя білеты.* ‖ *незак.* **распаўсю́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распаўсю́джванне**, -я, *н.*

**РАСПАЧА́ЦЬ**, -чну́, -чне́ш, -чне́; -чнём, -чняце́, -чну́ць; -ча́ў, -чала́, -ло́; -чні́; -ча́ты; *зак., што.* **1.** Актыўна прыступіць да ажыццяўлення чаго-н.; узяцца за якую-н. справу. *Р. будаўніцтва.* **2.** Пачаць карыстацца чым-н., ужываць што-н. *Р. каробку цукерак.* ‖ *незак.* **распачына́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **распачына́нне**, -я, *н.*

**РАСПАШО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Кароткая без гузікаў кашулька для груднога дзіцяці з разрэзам на спіне або на грудзях.

**РАСПАЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́ецца; *зак.* Расплавіцца на тым месцы, дзе спаяны. ‖ *незак.* **распа́йвацца**, -аецца.

**РАСПАЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* Расплавіць на месцы, дзе спаяна.

**РАСПЕРАЗА́ЦЦА**, -перажу́ся, -пяра́жашся, -пяра́жацца; распераж́ыся; *зак.* **1.** Зняць з сябе тое, чым быў падперазаны (пояс, рэмень і пад.). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Развязацца, расшпіліцца (пра пояс; разм.). **3.** *перан.* Перастаць стрымліваць сябе; стаць недысцыплінаваным, нахабным. ‖ *незак.* **распяра́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСПЕРАЗА́ЦЬ**, -перажу́, -пяра́жаш, -пяра́жа; -перажы́; -пераза́ны; *зак., каго-што.* Зняць, развязаць тое, чым быў падперазаны (пояс, рэмень і пад.). *Дзед распеpазаў кажух.*

**РАСПЕ́РЦІ** *гл.* распіраць.

**РАСПЕ́СЦІЦЦА**, -пе́шчуся, -пе́сцішся, -пе́сціцца; *зак.* (разм.). Стаць занадта спешчаным, капрызным, распусным. ‖ *незак.* **распе́шчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСПЕ́СЦІЦЬ**, -пе́шчу, -пе́сціш, -пе́сціць; -пе́шчаны; *зак., каго-што.* Сапсаваць празмернымі пяшчотамі; зрабіць пешчаным, капрызным, распусным. *Р. дзяцей.* ‖ *незак.* **распе́шчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распе́шчванне**, -я, *н.*

**РАСПЕ́Ў**, -пе́ву, *м.* **1.** Працяжны напеў, мелодыя як характэрная рыса спеву. **2.** Своеасаблівы прынцып будовы мелодыі, характэрны для старадаўняга царкоўнага спявання. *Р. малітвы.* **3.** Працяжнае, напеўнае вымаўленне слоў пры чытанні, размове. *Словы ён вымаўляе крыху з распевам.* ‖ *прым.* **распе́ўны**, -ая, -ае.

**РАСПЕ́ЦЦА**, -пяю́ся, -пяе́шся, -пяе́цца; -пяёмся, -пеяце́ся, -пяю́цца; *зак.* **1.** Прапеўшы некаторы час, запець лёгка і свабодна. **2.** Пачаўшы пець, захапіцца спевамі. ‖ *незак.* **распява́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАСПЕ́ЦЬ**, -пяю́, -пяе́ш, -пяе́; -пяём, пеяце́, -пяю́ць; -пе́й; -пе́ты; *зак., што.* **1.** Развучыць, рэпетуючы (музычны твор для голасу). *Р. дуэт.* **2.** Прымусіць добра гучаць (пра голас, галасы). *Р. хор перад выступленнем.* ‖ *незак.* **распява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **распява́нне**, -я, *н.*

**РАСПІВА́ЦЬ** *гл.* распіць.

**РАСПІ́ВАЧНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з продажам напіткаў, якія выпіваюцца на месцы іх пакупкі.

**РАСПІЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак., што.* Разрэзаць пілой на часткі. *Р. дошку.* ‖ *незак.* **распіло́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распіло́ўванне**, -я, *н. і* **распіло́ўка**, -і, *ДМ* -ло́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **распіло́вачны**, -ая, -ае.

**РАСПІНА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* распяцца. **2.** *перан.* Траціць шмат сіл, намаганняў, адстойваючы што-н., пераконваючы каго-н. у чым-н. (разм.). *Хлапец доўга распінаўся, даводзячы, што ён не вінаваты.*

**РАСПІНА́ЦЬ** *гл.* распяць.

**РАСПІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *што.* Напорам знутры прымушаць расшырацца, раздавацца. **2.** *перан., каго-што.* Перапаўняць, захапляць цалкам (пра настроі, думкі, пачуцці і пад.). *Нечаканая радасць распірала Максіма.* **3.** *безас., каго (што).* Аб празмерным атлусценні, сытасці (разм.). ‖ *зак.* **распе́рці**, разапру́, разапрэ́ш, разапрэ́; разапро́м, разапраце́, разапру́ць; распёр, -пе́рла; разапры́; распёрты.

**РАСПІСА́ЦЦА**, -пішу́ся, -пі́шашся, -пі́шацца; -пішы́ся; *зак.* **1.** Паставіць свой подпіс пад чым-н. *Р. ў дзённіку сына.* **2.** *перан.* Сваімі ўчынкамі, паводзінамі пацвердзіць што-н. у адносінах да сябе. *Р. ў сваёй бездапаможнасці.* **3.** *з кім і без дап.* Зарэгістраваць свой шлюб (разм.). **4.** Пачаўшы пісаць, захапіцца (разм.). *Так распісаўся, што не спыніць.* ‖ *незак.* **распі́свацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **распі́сванне**, -я, *н.* (да 2 знач.) *і* **распі́ска**, -і, *ДМ* распі́сцы, *ж.* (да 1 знач.).

**РАСПІСА́ЦЬ**, -пішу́, -пі́шаш, -пі́ша; -пішы́; -пі́саны; *зак.* **1.** *што.* Перапісаць асобна часткі чаго-н. *Р. тэкст на картկі.* **2.** *каго-што.* Размеркаваць каго-, што-н. паміж кім-, чым-н., зрабіўшы адпаведны запіс. *Р. дні прыёму.* **3.** *каго (што).* Зарэгістраваць чый-н. шлюб. *У загсе маладых распісалі.* **4.** *што.* Размаляваць фарбамі, узорамі, пакрыць роспісам (у 2 знач.). *Р. столь.* **5.** *перан., каго-што.* Расказаць, апісаць каго-, што-н. занадта падрабязна, у дэталях (разм.). *Мне яго распісалі як добрага працаўніка.* ‖ *незак.* **распі́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распі́сванне**, -я, *н.*, **распі́ска**, -і, *ДМ* распі́сцы, *ж.* (да 1 і 3 знач.) *і* **ро́спіс**, -у, *м.* (да 4 знач.).

**РАСПІ́СКА**, -і, *ДМ* распі́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** *гл.* распісаць, распісацца. **2.** Дакумент з подпісам, які пацвярджае атрыманне чаго-н.

**РАСПІСНЫ́**, -а́я, -о́е. Упрыгожаны роспісам (у 2 знач.). *Расписныя сцены.*

**РАСПІХА́ЦЬ**[1] *гл.* разапхнуць.

**РАСПІХА́ЦЬ**[2] *гл.* разапхаць.

**РАСПІ́ХВАЦЬ**[1] *гл.* разапхнуць.

**РАСПІ́ХВАЦЬ**[2] *гл.* разапхаць.

**РАСПІ́ЦЬ**, разап'ю́, разап'е́ш, разап'е́; разап'ём, разап'яце́, разап'ю́ць; распіў, -піла́, -ло́; распі́; распі́ты; *зак., што* (разм.). Выпіць разам з кім-н. *Р. бутэльку каньяку.* ‖ *незак.* **распіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАСПЛА́ВІЦЦА** *гл.* плавіцца.

**РАСПЛА́ВІЦЬ** *гл.* плавіць.

**РАСПЛАДЗІ́ЦЦА** *гл.* пладзіцца.

**РАСПЛАДЗІ́ЦЬ** *гл.* пладзіць.

**РАСПЛА́КАЦЦА**, -пла́чуся, -пла́чашся, -пла́чацца; -пла́чся; *зак.* **1.** Пачаць моцна плакаць. *Дзіця расплакалася.* **2.** *перан.* Пачаць расчулена гаварыць, жаліцца, імкнучыся выклікаць спачуванне (разм.). *Ён умее так р., што расчуліць любога.*

**РАСПЛАНАВА́ЦЬ** *гл.* планаваць.

**РАСПЛАСТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Легчы, упасці плазам, шчыльна прыціснуўшыся да зямлі, да якой-н. паверхні. *Р. на зямлі.* **2.** Выцягнуцца ў гарызантальнай плоскасці, раскінуўшы ў бакі рукі. ‖ *незак.* **распла́ствацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСПЛАСТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* **1.** Палажыць пластом, шчыльна прыціснуўшы да якой-н. паверхні. *Ранены ўпаў на зямлю і распластаў рукі.* **2.** Выцягнуць, раскінуўшы ў бакі. *Р. крылы.* ‖ *незак.* **распла́стваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСПЛА́ТА**, -ы, *ДМ* -пла́це, *ж.* **1.** *гл.* расплаціцца. **2.** *перан.* Кара, помста. *Настаў час расплаты за здраду.*

**РАСПЛА́Ў**, -ла́ву, *мн.* -ла́вы, -ла́ваў, *м.* (спец.). Рэчыва ў расплаўленым стане.

**РАСПЛАЦІ́ЦЦА**, -плачу́ся, -пла́цішся, -пла́ціцца; *зак.* **1.** *з кім-чым.* Заплаціць грошы каму-н. за што-н., разлічыцца за паслугі. *Р. з даўгамі.* **2.** *перан., з кім.* Адпомсціць, разлічыцца за прычыненую крыўду. *Р. з ворагам.* **3.** *перан.* Панесці пакаранне за што-н. *Здраднік расплаціўся за свае дзеянні.* ‖ *незак.* **распла́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **распла́та**, -ы, *ДМ* -пла́це, *ж.*

**РАСПЛЕ́СЦІ**, -пляту́, -пляце́ш, -пляце́; -пляцём, -плецяце́, -пляту́ць; расплёў, -пляла́, -ло́; -пляці́; -пле́цены; *зак., што.* Распусціць што-н. сплеценае; разняць. *Р. касу. Р. вянок.* ‖ *незак.* **расплята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАСПЛЕ́СЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -пляце́цца; расплёўся, -пляла́ся, -ло́ся; *зак.* Распусціцца (пра што-н. сплеценае). *Каса расплялася.* ‖ *незак.* **расплята́цца**, -а́ецца.

**РАСПЛЫСЦІ́СЯ** *і* **РАСПЛЫ́ЦЦА**, -плыву́ся, -плыве́шся, -плыве́цца; -плывёмся, -плывяце́ся, -плыву́цца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паплысці ў розныя бакі. *Гусі расплыліся па возеры.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разысціся пад уздзеяннем вільгаці, вады. *Літары расплыліся, нічога нельга разабраць.* **3.** *перан.* Страціць выразнасць ліній, абрысаў. *У цемрадзі расплыліся абрысы гор.* **4.** *перан.* Распаўнець, страціць стройнасць фігуры (разм.). *Р. на старасці гадоў.* **5.** З'явіцца на твары (пра ўсмешку). *На твары расплылася лагодная ўсмешка.* ‖ *незак.* **расплыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАСПЛЫ́ЎЧАТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не мае выразна акрэсленых абрысаў. *Расплывістыя абрысы гор.* **2.** *перан.* Невыразны, няпэўны, няясны. *Р. адказ вучня.* ‖ *наз.* **расплы́ўчатасць**, -і, *ж.*

**РАСПО́КНУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* (разм.). Пра пупышкі, пераспелыя плады: распусціцца, лопнуць. *Пупышкі на вярбе распокнуліся.* ‖ *незак.* **распо́квацца**, -аецца.

**РАСПО́Р**, -у, *м.* (спец.). У збудаваннях і канструкцыях: ціск, які пашыраецца ў гарызантальным напрамку пад уздзеяннем сіл, якія дзейнічаюць у вертыкальным напрамку. ‖ *прым.* **распо́рны**, -ая, -ае.

**РАСПО́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* Фасонны разрэз у верхнім адзенні; распорка. *Фрэнч з распоркамі ззаду.*

**РАСПО́РВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* Тое, што і *пароцца*[2].

**РАСПО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Брус, планка для надання ўстойлівасці часткам збудаванняў, для захавання чаго-н. у пэўным становішчы. *Р. для лыжаў.* **2.** Тое, што і *разрэз*, *распорак*. *На ім быў кароткі кажушок з аблямаванай распоркай ззаду.* **3.** Разарванае па шве месца. *Яго шапка была скрозь з распоркамі.* ‖ *прым.* **распо́рачны**, -ая, -ае.

**РАСПО́ЎЗЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які страціў пэўныя абрысы, форму. *Р. памідор.* ‖ *наз.* **распо́ўзласць**, -і, *ж.*

**РАСПРА́ВА**, -ы, *ж.* Жорсткае прымяненне фізічнай сілы да каго-н. з мэтай пакарання, прымусу да чаго-н. *Кулачная р. Учыніць расправу.*

**РАСПРА́ВІЦЦА**[1], -пра́ўлюся, -пра́вішся, -пра́віцца; *зак.* **1.** *з кім.* Учыніць расправу над кім-н., жорстка пакараць каго-н. *Р. са злачынцамі.* **2.** *перан., з кім-чым.* Управіцца з чым-н., паспець скончыць што-н. (разм.). *Р. з сенам.* ‖ *незак.* **распраўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**РАСПРА́ВІЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -пра́віцца; *зак.* Разгладзіцца, зрабіцца роўным; выпраміцца. *Складкі на спадніцы расправіліся.* ‖ *незак.* **распраўля́цца**, -я́ецца.

**РАСПРА́ВІЦЬ**, -пра́ўлю, -пра́віш, -пра́віць; -пра́ўлены; *зак., што.* **1.** Разгладзіць, зрабіць роўным, выпраміць. *Р. абрус на стале.* **2.** Напружыўшы мышцы, выпрастаць (часткі цела). *Р. плечы.* ◊ **Расправіць крылы** — праявіць рашучасць, веру ў сябе. ‖ *незак.* **распраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **распра́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (спец.).

**РАСПРАГА́ННЕ** *гл.* распрэгчы.

**РАСПРАГА́ЦЦА** *гл.* распрэгчыся.

**РАСПРАГА́ЦЬ** *гл.* распрэгчы.

**РАСПРАДА́ЦЬ**, -да́м, -дасі́, -да́сць; -дадзі́м, -дасце́, -даду́ць; -да́дзены; *зак., каго-што.* Прадаць па частках, паступова ўсё дарэшты. *Р. маёмасць.* ‖ *незак.* **распрадава́ць**, -даю́, -дае́ш, -дае́; -даём, -даяце́, -даю́ць; -дава́й. ‖ *наз.* **распрада́жа**, -ы, *ж.* *і* **распро́даж**, -у, *м.* ‖ *прым.* **распрада́жны**, -ая, -ае (спец.).

**РАСПРАНА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Памяшканне, прызначанае для распранання і захавання верхняга адзення. ‖ *прым.* **распрана́льны**, -ая, -ае. *Распранальныя кабіны на пляжы.*

**РАСПРАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́; -ні́; распра́нены *і* -ну́ты; *зак., каго (што).* **1.** Зняць з каго-н. верхняе адзенне. *Р. гасцей.* **2.** *перан.* Зняць, скінуць покрыва (лісце, траву) з чаго-н. ‖ *незак.* **распрана́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **распрану́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; *незак.* **распрана́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **распрана́нне**, -я, *н.*

**РАСПРАПАГАНДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак., што.* Прапагандуючы, канчаткова пераканаць каго-н. у чым-н.

**РАСПРАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., што.* Разгладзіць прасам. *Р. складкі на сукенцы.* ‖ *незак.* **распрасо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распрасо́ўванне**, -я, *н.*

**РАСПРАСТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Выпрастаць, зрабіць роўным, разагнуць. *Р. спіну.* **2.** Разгарнуць на ўвесь размах (крылы). ‖ *незак.* **распро́стваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСПРАЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *зак., што.* **1.** Старанна апрацоўваючы, зрабіць прыгодным для чаго-н. *Р. поле.* **2.** Усебакова даследаваць, вывучыць. *Р. праблемнае пытанне.* **3.** Вычарпаць дзе-н. усю магчымую здабычу карысных выкапняў. *Залаты прыіск ужо распрацаваны.* ‖ *незак.* **распрацо́ўваць**, -ваю, -ваеш, -вае. ‖ *наз.* **распрацо́ўванне**, -я *і* **распрацо́ўка**, -і, *ДМ* -цо́ўцы, *ж.*

**РАСПРО́ДАЖ** *гл.* распрадаць.

**РАСПРЭ́ГЧЫ**, -прагу́, -пражэ́ш, -пражэ́; -пражо́м, -пражаце́, -прагу́ць; распро́г, -прэ́гла *і* -прагла́, -прэ́гла *і* -прагло́; распражы́; -прэ́жаны; *зак., каго-што.* Вызваліць ад вупражы, выпрагчы. *Р. каня.* ‖ *незак.* **распрага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **распрага́нне**, -я, *н.*

**РАСПРЭ́ГЧЫСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -пражэ́цца, -прагу́цца; распро́гся, -прэ́глася *і* -прагла́ся, -прэ́глася *і* -прагло́ся; *зак.* Вызваліцца ад вупражы. *Коні распрэгліся.* ‖ *незак.* **распрага́цца**, -а́ецца.

**РАСПУ́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* Напалохаўшы, разагнаць. *Р. курэй.* ‖ *незак.* **распу́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСПУСКА́ЦЦА** *гл.* распусціцца.

**РАСПУСКА́ЦЬ** *гл.* распусціць.

**РАСПУ́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто вядзе распуснае жыццё. **2.** Свавольнік (разм.). *Мінулай ноччу нейкі р. патаптаў грады.* ‖ *ж.* **распу́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **распу́сніцкі**, -ая, -ае.

**РАСПУ́СНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Весці разбэшчанае, распуснае жыццё. **2.** Сваволіць, дурэць, гарэзаваць (разм.). *Вы яго прывучылі р.*

**РАСПУ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вызначаецца маральнай разбэшчанасцю. *Распусная жанчына.* **2.** Свавольны (разм.). *Распуснае дзіця.* ‖ *наз.* **распу́снасць**, -і, *ж.*

**РАСПУ́СТА**, -ы, *ДМ* -сце, *ж.* **1.** Распусны лад жыцця. *Кінуцца ў распусту.* **2.** Свавольства, раздуранасць, адсутнасць дысцыпліны. *Залішняя распешчанасць вядзе да распусты.* **3.** *ДМ* -сту, *Т* -ам, *м.*; *ДМ* -сце, *Т* -ай (-аю), *ж.*, *мн.* -ы, -пуст *і* -аў. Пра таго, хто разбэсціўся, раздурэў (разм.). *Не хлапец, а р.*

**РАСПУСЦІ́ЦЦА**, -пушчу́ся, -пу́сцішся, -пу́сціцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раскрыцца, разгарнуцца, пакрыцца лістамі (пра пупышкі, кветкі, лісты). *Распусціліся бярозы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Расплесціся, развіцца (пра што-н. заплеценае). *Косы распусціліся.* **3.** Пачаць весці сябе непрыстойна; стаць недысцыплінаваным (разм.). *Распусціліся дзеці без бацькі.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Перайсці ў вадкі стан. *Масла распусцілася на патэльні.* **5.** Разысціся, растварыцца ў вадзе. *У гарачай вадзе цукар хутка распусціўся.* ‖ *незак.* **распуска́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **распуска́нне**, -я, *н.*

**РАСПУСЦІ́ЦЬ**, -пушчу́, -пу́сціш, -пу́сціць; -пу́шчаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Адпусціць (многіх), вызваліўшы ад абавязкаў, заняткаў і пад. *Р. вучняў на час канікул.* **2.** Расфарміраваць, ліквідаваць. *Р. часовую камісію.* **3.** *што.* Развязаць, разгарнуць што-н. звязанае, скручанае, сцягнутае. *Р. парусы. Р. косы. Р. парасон.* **4.** *што.* Раскідаць што-н. вязанае. *Р. шкарпэткі.* **5.** *каго-што.* Знізіўшы патрабавальнасць, строгасць, дапусціць да свавольства, зрабіць дуроным, недысцыплінаваным (разм.). *Р. дзяцей.* **6.** *што.* Прымусіць растварыцца ў якой-н. вадкасці (разм.). *Р. фарбу ў вадзе.* **7.** *што.* Растапіць. *Р. масла.* **8.** *што.* Расказаць многім (чуткі, плёткі; разм., неадабр.). *Р. чуткі.* ‖ *незак.* **распуска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **распуска́нне**, -я, *н.* *і* **ро́спуск**, -у, *м.* (да 1 знач.).

**РАСПУ́ТАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Вызваліцца ад пута. *Конь распутаўся.* ‖ *незак.* **распу́твацца**, -аецца.

**РАСПУ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Вызваліць ад пута, путаў. *Р. каня.* ‖ *незак.* **распу́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распу́тванне**, -я, *н.*

**РАСПУ́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які распух. *Распухлая рука.* **2.** *перан.* Які моцна павялічыўся ў памерах, аб'ёме (разм.). *Р. штат.* ‖ *наз.* **распу́хласць**, -і, *ж.*

**РАСПУ́ХНУЦЬ**, -ну, -нeш, -не; распу́х, -хла; -ні; *зак.* **1.** Моцна апухнуць; ацячы. *Нага распухла.* **2.** *перан.* Павялічыцца ў памерах (разм.). *Папка распухла ад папер.* ‖ *незак.* **распуха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **распуха́нне**, -я, *н.*

**РАСПУ́ШЧАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Недысцыплінаваны. *Р. хлапец.* **2.** Які свабодна па́дае, не сабраны разам (пра валасы). *Распушчаныя валасы.* ‖ *наз.* **распу́шчанасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**РАСПУШЫ́ЦЬ** *гл.* пушыць.

**РАСПЫЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -пы́ліцца; -пы́лены; *зак.* **1.** Рассеяцца, распырскацца, разляцецца (пра парашок, вадкасць і пад.). **2.** *перан.* Разбіцца, рассеяцца на дробныя групы. *Сілы працаўніка распыліліся.* ‖ *незак.* **распыля́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **распыле́нне**, -я, *н.*

**РАСПЫЛІ́ЦЬ**, -пылю́, -пы́ліш, -пы́ліць; -пы́лены; *зак.* **1.** *што.* Рассеяць, распырскаць моцным струменем (парашок, вадкасць). **2.** *перан. каго-што.* Раскідаць дробнымі групамі, часткамі, пазбавіўшы гэтым дзейнасці, сілы. *Р. сілы. Р. сродкі.* ‖ *незак.* **распыля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **распыле́нне**, -я, *н.* *і* **распы́л**, -у, *м.* (спец.).

**РАСПЫЛЯ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Прыстасаванне для рассейвання парашкоў або вадкасцей.

**РАСПЫЛЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для распылення чаго-н. *Р. апарат.*

**РАСПЫ́РСКАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Распляскацца пырскамі. ‖ *незак.* **распы́рскваццa**, -áецца. ‖ *наз.* **распы́рскванне**, -я, *н.*

**РАСПЫ́РСКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Рассеяць дробнымі пырскамі. *Р. ваду.* **2.** Пырскаючы, зрасходаваць. *Р. адэкалон.* ‖ *незак.* **распы́рскваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распы́рскванне**, -я, *н.*

**РАСПЫТА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* (разм.). Тое, што і *распытаць.* ‖ *незак.* **распы́тваццa**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСПЫТА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., каго-што.* Пытаючы ў каго-н., даведацца пра што-н., высветліць што-н. *Р. дарогу на вакзал.* ‖ *незак.* **распы́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распы́тванне**, -я, *н. і* **ро́спыт**, -у, *М* -пыце, *м.*

**РАСПЭ́ЦКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Размазацца па якой-н. паверхні. *Фарба распэцкалася па падлозе.*

**РАСПЭ́ЦКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Размазаць па паверхні што-н. *Р. фарбу па стале.*

**РАСПЯВА́ННЕ** *гл.* распець.

**РАСПЯВА́ЦЦА** *гл.* распецца.

**РАСПЯВА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *гл.* распець. **2.** *што* і *без дап.* Спяваць гучна, весела. *Р. вясёлыя песні.*

**РАСПЯРА́ЗВАЦЦА** *гл.* расперазацца.

**РАСПЯ́ЦЦА**, разапну́ся, разапне́шся, разапне́цца; разапнёмся, разапняцёся, разапну́цца, -ні́ся; *зак.* (разм.). Раскінуць рукі або крылы крыжам; раскінуцца. ‖ *незак.* **распіна́цца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**РАСПЯ́ЦЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* распяць. **2.** Крыж з фігурай распятага Хрыста, а таксама сама фігура распятага Хрыста.

**РАСПЯ́ЦЬ**, разапну́, разапне́ш, разапне́; разапнём, разапняце́, разапну́ць; разапні́; распя́ты; *зак., каго-што.* Прыбіць цвікамі да крыжа рукі і ногі (старадаўні спосаб пакарання). ‖ *незак.* **распіна́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **распя́ццe**, -я, *н.*

**РАСПЯЧА́ТАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Адкрыцца, расклеіўшыся (пра што-н. запячатанае). ‖ *незак.* **распяча́тваццa**, -аецца.

**РАСПЯЧА́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Адкрыць заклеенае, запячатанае. *Р. пакет.* ‖ *незак.* **распяча́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **распяча́тванне**, -я, *н.*

**РАССА́ДЖВАЦЦА** *гл.* рассесціся.

**РАССАДЗІ́ЦЬ**, -саджу́, -са́дзіш, -са́дзіць; -са́джаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Усадзіць (многіх) на месца. *Р. гасцей.* **2.** *каго (што).* Пасадзіць паасобку адзін ад аднаго. *Р. непаслухмяных вучняў.* **3.** *што.* Перасадзіць расліны радзей, у іншае месца. *Р. агуркі. Р. агрэст.* **4.** *што.* Моцным ударам разбіць, параніць, разламаць (разм.). *Р. галаву. Р. акно.* ‖ *незак.* **расса́джваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—3 знач.). ‖ *наз.* **расса́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж. і* **расса́джванне**, -я, *н.*

**РАССА́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што з'яўляецца крыніцай з'яўлення, размнажэння чаго-н. *Р. хвароб.*

**РАССАКРЭ́ЦІЦЬ**, -рэ́чу, -рэ́ціш, -рэ́ціць; -рэ́чаны; *зак., каго-што.* Зрабіць несакрэтным, вядомым; вызваліць ад сакрэтнай дзейнасці. *Р. закрытыя архівы.* ‖ *незак.* **рассакрэ́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАССАРТАВА́ЦЬ** *гл.* сартаваць.

**РАССВІДРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Свідруючы, расшырыць. ‖ *незак.* **рассвідро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАССВІТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áе; *безас., зак.* і *незак.* Пра наступленне світання; развіднецца (развідняцца).

**РАССВЯРБЕ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -біцца; *зак.* (разм.). Пачаць моцна і доўга свярбець.

**РАССЕ́ДЗЕЦЦА**, -се́джуся, -се́дзішся, -се́дзіцца *і* **РАССЯДЗЕ́ЦЦА**, -сяджу́ся, -сядзі́шся, -сядзі́цца; -сядзі́мся, -седзіце́ся, -сядзя́цца; *зак.* (разм.). Прасядзець доўгі час дзе-н. ‖ *незак.* **рассе́джваццa**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАССЕ́К**, -у, *м.* Месца, па якім рассечана што-н.; рассечанае месца. *На рассеку сасны з'явілася смала.*

**РАССЕ́КЧЫ** *гл.* рассячы.

**РАССЕ́КЧЫСЯ** *гл.* рассячыся.

**РАССЕ́СЦІСЯ**, -ся́дуся, -ся́дзешся, -ся́дзецца; рассе́ўся, -се́лася; -ся́дзься; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Размясціцца дзе-н. (пра многіх, усіх). *Р. ў вагоне.* **2.** Сесці, заняўшы шмат месца (разм.). *Р. на лаўцы.* **3.** Сеўшы, затрымацца надоўга. *Што ж я расселася, трэба ж дадому!* ‖ *незак.* **расса́джваццa**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 2 знач.) *і* **рассяда́цца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**РАССЕ́ЯНЫ**, -ая, -ае. Няўважлівы, які не ўмее засяродзіцца. *Р. вучань.* ‖ *наз.* **рассе́янасць**, -і, *ж.*

**РАССЕ́ЯЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -се́ецца; *зак.* **1.** Падаючы, сеючыся, рассыпацца ў розныя бакі, папасці ў розныя месцы. **2.** Размеркавацца, размясціцца на вялікай прасторы, у розных месцах. *Байцы рассеяліся па лесе.* **3.** *перан.* Прайсці, знікнуць (пра якое-н. непрыемнае пачуццё). *Мая трывога не рассеялася.* ‖ *незак.* **рассе́йваццa**, -аецца *і* **рассява́цца**, -áецца. ‖ *наз.* **рассе́йванне**, -я, *н. і* **рассява́нне**, -я, *н.*

**РАССЕ́ЯЦЬ**, -се́ю, -се́еш, -се́е; -се́й; -се́яны; *зак.* **1.** *што.* Пасеяць. *Р. ячмень.* **2.** *каго-што.* Прымусіць разысціся; разагнаць. *Р. ворага па лесе.* **3.** Аслабіць, зрабіць менш моцным у выніку распаўсюджання ў розныя бакі. *Р. святло.* **4.** *перан., што.* Прымусіць знікнуць, прайсці (пра якое-н. непрыемнае пачуццё). ‖ *незак.* **рассе́йваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **рассява́ць**, -áю, -áеш, -áе (да 1 знач.). ‖ *наз.* **рассе́ў**, -се́ву, *м.* (да 1 знач.), **рассе́йванне**, -я, *н.*, **рассява́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **рассе́янне**, -я, *н.* (да 3 знач.).

**РАССКАКА́ЦЦА**, -скачу́ся, -ска́чашся, -ска́чацца; -скачы́ся; *зак.* (разм.). **1.** Захапіўшыся скокамі, пачаць многа скакаць. **2.** Скачучы, набраць большую хуткасць (пра каня).

**РАССКВА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* Падсмажыць, выскварыць (сала). ‖ *незак.* **рассква́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАССКУ́БЦІ**, -скубу́, -скубе́ш, -скубе́; -скубём, -скубяце́, -скубу́ць; -ску́б, -бла; -скубі́; -ску́бены; *зак., што.* Скубучы, разадраць, расцягнуць што-н. *Р. кудзелю.* ‖ *незак.* **расскуба́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **расскуба́нне**, -я, *н.*

**РАССЛАБЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Тое, што і *расслабнуць.*

**РАССЛА́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., каго-што.* **1.** Зрабіць слабым, ненапружаным; аслабіць. *Р. мышцы.* **2.** Адпусціць, зрабіць слабкім. *Р. туга завязаную хустку.* ‖ *незак.* **расслабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **расслабле́нне**, -я, *н.*

**РАССЛА́БНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; расслаб, -бла; -ні; *зак.* (разм.). Моцна аслабець, стаць слабым. *Р. ад ношы.*

**РАССЛА́ВІЦЬ**, -лаўлю, -ла́віш, -ла́віць; -лаў; -лаўлены; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Моцна расхваліць каго-, што-н.; уславіць *Р. подзвігі герояў.* **2.** Распусціць чуткі, плёткі пра каго-, што-н. *Р. па ўсім сяле.* ‖ *незак.* **расслаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**РАССЛАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -слоіцца; *зак.* **1.** Раздзяліцца на слаі (у 1 знач.). *Горная парода расслаілася.* **2.** *перан.* Раздзяліцца на сацыяльныя групы, праслойкі. ‖ *незак.* **рассло́йваццa**, -аецца. ‖ *наз.* **расслае́нне**, -я, *н. і* **рассло́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.*

**РАССЛАІ́ЦЬ**, -лаю́, -ло́іш, -ло́іць; -ло́ены; *зак.* **1.** *што.* Раздзяліць на слаі (у 1 знач.). *Р. торт.* **2.** *перан., каго-што.* Падзяліць на сацыяльныя групы. ‖ *незак.* **рассло́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расслае́нне**, -я, *н. і* **рассло́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.*

**РАССЛУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што* (разм.). Добра пачуць, разабраць на слых.

**РАССМАКТА́ЦЬ**, -макчу́, -мо́кчаш, -мо́кча; -макчы́; -макта́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Прымусіць знікнуць, разысціся (пра пухліну і пад.). **2.** Смокчучы, растварыць. *Р. драбок цукру.* ‖ *незак.* **рассмо́ктваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **рассмо́ктванне**, -я, *н.*

**РАССМЯШЫ́ЦЬ** *гл.* смяшыць.

**РАССМЯЯ́ЦЦА**, -мяю́ся, -мяе́шся, -мяе́цца; -мяёмся, -меяце́ся, -мяю́цца; -ме́йся; *зак.* Пачаць моцна смяяцца, адказаць смехам. *Недарэчна р.*

**РАССО́ВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Размясціць, засоўваючы ў розныя месцы. *Р. яблыкі па скрынках.*

**РАССО́ЎВАННЕ** *гл.* рассунуць.

**РАССО́ЎВАЦЦА** *гл.* рассунуцца.

**РАССО́ЎВАЦЬ** *гл.* рассунуць.

**РАССО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які можна рассунуць. *Р. стол.*

**РАССО́ХЛЫ**, -ая, -ае. Які рассохся. *Рассохлая дзежка.*

**РАССО́ХНУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; рассо́хся, -со́хлася; *зак.* Высахнуць так, каб утварыліся шчыліны. *Цэбар рассохся.* ‖ *незак.* **рассыха́цца**, -а́ецца.

**РАССПЯВА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Пачаўшы пець, захапіцца спевамі. *Сын расспяваўся.* **2.** Крыху паспяваўшы, пачаць спяваць добра. *Р. перад канцэртам.*

**РАССТА́ВІЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -віцца; -вімся, -віцеся, -вяцца; *зак.* (разм.). Размясціцца, стаўшы на патрэбных месцах у пэўным парадку. ‖ *незак.* **расстаўля́цца**, -я́ецца; -я́емся, -я́ецеся, -я́юцца.

**РАССТА́ВІЦЬ**, -та́ўлю, -та́віш, -та́віць; -та́ўлены; *зак.* **1.** *каго-што.* Размясціць, паставіць якім-н. чынам, парадкам. *Р. кнігі на паліцах.* **2.** *што.* Паставіць так, каб павялічылася адлегласць паміж чым-н. *Р. ногі.* **3.** *што.* Рассунуўшы, устанавіць для карыстання што-н. рассоўнае, раскладное. *Р. раскладушку.* ‖ *незак.* **расстаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **расстано́ўка**, -і, *ДМ* -но́ўцы, *ж.* (да 1 знач.).

**РАССТА́ЙНЫ**, -ая, -ае. У паэзіі: які мае адносіны да расстання, звязаны з расставаннем. *Расстайныя дарогі.*

**РАССТАНО́ЎКА**, -і, *ДМ* -но́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* расставіць. **2.** *Р мн.* -но́вак. Парадак, паслядоўнасць у размяшчэнні чаго-н. *Правільная р. знакаў прыпынку.* **3.** *Р мн.* -но́вак. Кароткая паўза пры размове, пры выкананні чаго-н. *Чытаць верш з расстаноўкай.* ‖ *прым.* **расстано́вачны**, -ая, -ае (да 3 знач.).

**РАССТАРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Вельмі пастарацца для набыцця чаго-н.

**РАССТА́ЦЦА**, -та́нуся, -та́нешся, -та́нецца; -та́ньcя; *зак., з кім-чым.* **1.** Развітаўшыся, разысціся; разлучыцца з кім-н. *Р. з сябрамі. Р. назаўсёды.* **2.** Адмовіцца ад каго-, чаго-н. *Р. з дрэннымі звычкамі.* ‖ *незак.* **расстава́цца**, -стаю́ся, -стае́шся, -стае́цца; -стаёмся, -стаяце́ся, -стаю́цца. ‖ *наз.* **расстава́нне**, -я, *н.*, **расста́нне**, -я, *н.* *і* **ро́стань**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**РАССТРАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *каго (што).* Падвергнуць расстрэлу (у 2 знач.). *Р. здрадніка.* **2.** *каго-што.* Падвергнуць моцнаму абстрэлу з блізкай адлегласці. *Р. варожы эшалон з боепрыпасамі.* **3.** *што.* Зрасходаваць пры стральбе. *Р. усе патроны.* ‖ *незак.* **расстрэ́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расстрэ́л**, -у, *м.* *і* **расстрэ́льванне**, -я, *н.*

**РАССТРО́ІЦЦА**, -ро́юся, -ро́ішся, -ро́іцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Страціць правільнасць пастраення, стаць беспарадкавым. *Калона вучняў расстроілася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Страціць свой строй, лад (пра музычныя інструменты). *Цымбалы расстроіліся.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыйсці ў заняпад. *Гаспадарка расстроілася.* **4.** Прыйсці ў ненармальны, хваравіты стан. *Здароўе расстроілася.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Не адбыцца па якой-н. прычыне. *Вяселле расстроілася.* **6.** Засмуціцца, моцна загараваць. *Р. з-за сына.* ‖ *незак.* **расстро́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАССТРО́ІЦЬ**, -ро́ю, -ро́іш, -ро́іць; -ро́ены; *зак.* **1.** *каго-што.* Парушыць парадак, строй чаго-н. *Р. калону вучняў.* **2.** *што.* Парушыць лад, строй (пра музычныя інструменты). *Р. скрыпку.* **3.** *што.* Прывесці ў заняпад, прычыніць шкоду. *Р. гаспадарку.* **4.** Давесці да ненармальнага стану, хваробы. *Р. здароўе.* **5.** *што.* Перашкодзіць ажыццяўленню чаго-н., разладзіць. *Р. планы.* **6.** *каго (што).* Засмуціць, давесці да дрэннага настрою. *Сваімі паводзінамі сын моцна расстроіў бацькоў.* ‖ *незак.* **расстро́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расстро́йства**, -а, *н.*

**РАССТРО́ЙСТВА**, -а, *н.* **1.** *гл.* расстроіць. **2.** Поўны беспарадак, замяшанне з прычыны парушэння строю (у 1 знач.). *Калона прыйшла ў р.* **3.** Заняпалы стан, беспарадак з прычыны ўрону, дэзарганізацыі, беспарадку. *Р. ў сям'і. Р. ў гаспадарчых справах.* **4.** Захворванне, выклíканае парушэннем дзейнасці якіх-н. органаў. *Р. нерваў.* **5.** Дрэнны настрой, страта душэўнай раўнавагі. *Не жыццё, а адно р.*

**РАССТРЫ́ГА**, -і, *ДМ* -у, *мн.* -і, -ры́г *і* -аў, *м.* Служыцель рэлігійнага культу, пазбаўлены царкоўнага сану, або манах, пазбаўлены манаства.

**РАССТРЫ́ГЧЫ**, -рыгу́, -рыжэ́ш, -рыжэ́; -рыжо́м, -рыжаце́, -рыгу́ць; -ры́г, -гла́; -рыжы́; -ры́жаны; *зак., каго-што.* Пазбавіць духоўнага сану або манаства. ‖ *незак.* **расстрыга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **расстрыжэ́нне**, -я, *н.*

**РАССТРЭ́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* расстраляць. **2.** Смяротная кара, якая чыніцца выстралам з агнястрэльнай зброі. *Прысудзіць да расстрэлу.*

**РАССТУПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -сту́піцца; -сту́пімся, -сту́піцеся, -сту́пяцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Адышоўшы ў бакі, даць месца для праходу, праезду. *Народ расступіўся.* **2.** Утварыць трэшчыны, разысціся ў бакі (пра зямлю, скалы, хвалі і пад.). ‖ *незак.* **расступа́цца**, -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца.

**РАССТЫКАВА́ЦЦА**, -ку́юся, -ку́ешся, -ку́ецца; -ку́йся; *зак.* Правесці расстыкоўку, раз'яднацца. ‖ *незак.* **расстыко́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **расстыко́ўка**, -і, *ДМ* -ко́ўцы, *ж.*

**РАССУДЗІ́ЦЬ**, -суджу́, -су́дзіш, -су́дзіць; -су́джаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Разабраўшы абставіны, факты, вырашыць, хто правы, хто вінаваты. *Р. спрэчку. Людзі нас рассудзяць.* **2.** Абдумаць, рашыць, разважыць. *Сама сабе рассуджу.* ‖ *незак.* **рассу́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАССУКА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца *і* -су́чацца; *зак.* Развіцца, распусціцца (пра скручанае). ‖ *незак.* **рассу́кваццa**, -аецца.

**РАССУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* -сучу́, -су́чаш, -су́ча; -сука́ны; *зак., што.* Развіць, распусціць (скручанае). *Р. плётку.* ‖ *незак.* **рассу́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАССУ́НУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* **1.** Рухаючыся, сунучыся ў бакі, аддаліцца, раз'яднацца, расступіцца. *Шторы рассунуліся. Кусты рассунуліся.* **2.** Разбурыцца, разваліцца (разм.). *Капа рассунулася.* ‖ *незак.* **рассо́ўвацца**, -аецца.

**РАССУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -су́нь; -нуты; *зак.* **1.** *што.* Рухаючы, сунучы ў розныя бакі, раз'яднаць, адсунуць, расхіліць. *Р. парты. Р. шторы. Р. пясок.* **2.** *што.* Зрабіць шырэйшым, раскласці (што-н. складное). *Р. стол.* **3.** *каго-што.* Прымусіць расступіцца. *Р. натоўп.* ‖ *незак.* **рассо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **рассо́ўванне**, -я, *н.*

**РАССУПО́НІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніцца; *зак.* Развязацца (пра супоню на хамуце). ‖ *незак.* **рассупо́ньвацца**, -аецца.

**РАССУПО́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што.* Развязаць супоню на хамуце. ‖ *незак.* **рассупо́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАССУСО́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм., неадабр.). Гаварыць павольна, трацячы час на лішнія падрабязнасці. ‖ *наз.* **рассусо́льванне**, -я, *н.*

**РАССЦІЛА́ННЕ** *гл.* разаслаць[2].

**РАССЦІЛА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* разаслацца. **2.** Размяшчацца на вялікай прасторы. *За хатай рассцілаўся луг.*

**РАССЦІЛА́ЦЬ** *гл.* разаслаць[2].

**РАССЦІ́ЛАЧНЫ** *гл.* разаслаць[2].

**РАССЦІ́ЛКА** *гл.* разаслаць[2].

**РАССЫЛА́ННЕ** *гл.* разаслаць[1].

**РАССЫЛА́ЦЬ** *гл.* разаслаць[1].

**РАССЫ́ЛАЧНЫ** *гл.* разаслаць[1].

**РАССЫ́ЛКА** *гл.* разаслаць[1].

**РАССЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да рассылкі, звязаны з рассылкай. **2.** *у знач. наз.* **рассы́льны**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Кур'ер, які разносіць пакеты, пісьмы.

**РАССЫ́ПАЦЦА**, -плюся, -плешся, -плецца; рассы́пся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Высыпаўшыся адкуль-н., раскідацца ў розныя бакі, рассеяцца. *Мука рассыпалася па стале. З кошыка рассыпаліся баравікі.* **2.** *перан.* Размясціцца, раскідацца на якой-н. прасторы. *На ўзгорку рассыпаліся хаты.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разваліцца, распасціся на дробныя часткі. *Хлеў хутка рассыплецца. Груда зямлі даволі лёгка рассыпалася.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разысціся, разбегчыся ў розныя бакі. *Дзеці рассыпаліся па дварах.* **5.** Абазвацца частымі пералівістымі гукамі. *Р. вясёлым рогатам.* **6.** Падкрэслена лісліва і шматслоўна выказаць каму-н. што-н. прыемнае (падзяку і пад.; разм.). *Р. ў падзяках.* ‖ *незак.* **рассыпа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **рассыпа́нне**, -я, *н.*

**РАССЫ́ПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; -паны; *зак.* **1.** *што.* Высыпаць, раскідаць,

рассеяць па паверхні. *Р. вішні. Р. грыбы.* **2.** *што.* Насыпаючы, размеркаваць, размясціць. *Р. бульбу ў два мяхі.* **3.** *перан., каго-што.* Размясціць уроскідку на якой-н. прасторы. *Р. роту ўздоўж дарогі.* ‖ *незак.* **рассыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **рассыпа́нне**, -я, *н. і* **рассы́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (да 2 знач.; разм.).

**РАССЫ́ПІСТЫ**, -ая, -ае. Які лёгка рассыпаецца на крупінкі, крошкі. *Рассыпістая бульба.* ‖ *наз.* **рассы́пістасць**, -і, *ж.*

**РАССЫПНЫ́**, -а́я, -о́е. Які захоўваецца, утрымліваецца, прадаецца без упакоўкі, россыпам. *Р. цэмент. Р. цукар. Р. тавар.* ○ **Рассыпны строй** — баявы строй пяхоты, у якім стралкі размяшчаюцца ланцугом на значнай адлегласці адзін ад аднаго.

**РАССЫ́ПЧАТЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *рассыпісты.* ‖ *наз.* **рассы́пчатасць**, -і, *ж.*

**РАССЫСА́ЦЦА** *гл.* разассацца.

**РАССЫСА́ЦЬ** *гл.* разассаць.

**РАССЫХА́ЦЦА** *гл.* рассохнуцца.

**РАССЫЦЕ́ЦЬ** *гл.* сыцець.

**РАССЯВА́ННЕ** *гл.* рассеяцца, рассеяць.

**РАССЯВА́ЦЦА** *гл.* рассеяцца.

**РАССЯВА́ЦЬ** *гл.* рассеяць.

**РАССЯДА́ЦЦА** *гл.* рассесціся.

**РАССЯДЗЕ́ЦЦА** *гл.* расседзецца.

**РАССЯДЛА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* Вызваліцца ад сядла. *Конь рассядлаўся.* ‖ *незак.* **рассядло́ўвацца**, -аецца.

**РАССЯДЛА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго (што).* Зняць сядло (з асядланай жывёліны). ‖ *незак.* **рассядло́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАССЯКА́ННЕ** *гл.* рассячы.

**РАССЯКА́ЦЦА** *гл.* рассячыся.

**РАССЯКА́ЦЬ** *гл.* рассячы.

**РАССЯЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -се́ліцца; -се́лімся, -се́ліцеся, -се́ляцца; *зак.* **1.** Пасяліцца ў розных месцах. *Р. на беразе возера.* **2.** Пасяліцца асобна (пра тых, хто жыў разам). *Ухаце цесна, р. трэба.* ‖ *незак.* **рассяля́цца**, -я́ецца; -я́емся, -я́еценся, -я́юцца. ‖ *наз.* **рассяле́нне**, -я, *н.*

**РАССЯЛІ́ЦЬ**, -сялю́, -се́ліш, -се́ліць; -се́лены; *зак., каго-што.* **1.** Пасяліць у многіх месцах. *Р. студэнтаў па кватэрах.* **2.** Пасяліць асобна (пра тых, хто жыў разам). *Р. сыноў.* ‖ *незак.* **рассяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **рассяле́нне**, -я, *н.*

**РАССЯЧЫ́** *і* **РАССЕ́КЧЫ**, -сяку́, -сячэ́ш, -сячэ́; -сячо́м, -сечаце́, -сяку́ць; -се́к, -кла; -сячы́; -се́чаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Секучы, раздзяліць на часткі. *Р. палена.* **2.** *што.* Нанесці глыбокую рану, парэз чым-н. вострым. *Р. палец. Р. нагу.* **3.** *перан., што.* Моцным рухам прарэзаць, раздзяліць, раз'яднаць. *Баржа рассекла водную гладзь. Рака рассекла луг на дзве часткі. Р. армію праціўніка.* ‖ *незак.* **рассяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **рассяка́нне**, -я, *н. і* **рассячэ́нне**, -я, *н.*

**РАССЯЧЫ́СЯ** *і* **РАССЕ́КЧЫСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -сячэ́цца, -сяку́цца; -се́кся, -се́клася; *зак.* Раздзяліцца, расшчапіцца на часткі. ‖ *незак.* **рассяка́цца**, -а́ецца.

**РАСТАЛКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* Растлумачыць, зрабіць зразумелым. *Р. правільнае рашэнне задачы.* ‖ *незак.* **расталко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСТАМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прылада для вымярэння росту чалавека.

**РАСТАПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -то́піцца; *зак.* Стаць вадкім у выніку награвання. *Воск растапіўся.* ‖ *незак.* **растапля́цца**, -я́ецца *і* **расто́пліванца**, -аецца.

**РАСТАПІ́ЦЬ**, -таплю́, -то́піш, -то́піць; -то́плены; *зак., што.* Нагрэўшы, ператварыць цвёрдае ў вадкае. *Р. тлушч. Р. воск.* ‖ *незак.* **растапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **расто́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСТАПТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -то́пчацца; *зак.* (разм.). Пра абутак: страціць форму, стаць залішне прасторным у выніку працяглай носкі; разнасіцца. ‖ *незак.* **расто́птвацца**, -аецца.

**РАСТАПТА́ЦЬ**, -тапчу́, -то́пчаш, -то́пча; -тапчы́; -тапта́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Наступіўшы, расціснуць; сапсаваць, знішчыць. *Р. грыб.* **2.** *перан.* Зняважыць чые-н. пачуцці, прынізіць годнасць. *Р. веру чалавека.* **3.** *што.* Пра абутак: доўга носячы, зрабіць залішне прасторным, разнасіць (разм.). *Р. чаравікі.* ‖ *незак.* **расто́птваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расто́птванне**, -я, *н.*

**РАСТАПЫ́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). **1.** Шырока раскінуць, расставіць, развесці рукі, ногі седзячы або стоячы. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). *перан.* Распасцерціся ўшыркі, раскінуўшы вецце, галіны і пад. *Галіны дрэва растапырыліся ад ветру.* ‖ *незак.* **растапы́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСТАПЫ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* (разм.). **1.** Расставіць, развесці ў бакі (рукі, ногі і пад.). *Р. пальцы. Р. крылы.* **2.** *перан.* Раскінуць, распасцерці ў бакі (вецце, галіны і пад.). *Елка растапырыла галіны.* ‖ *незак.* **растапы́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **растапы́рванне**, -я, *н.*

**РАСТАРМАСІ́ЦЬ**, -машу́, -мо́сіш, -мо́сіць; -мо́шаны; *зак., каго (што)* (разм.). **1.** Тармосячы, разбудзіць, раскатурхаць. **2.** *перан.* Прымусіць дзейнічаць, развярушыць, расшавяліць.

**РАСТАРО́ПНЫ**, -ая, -ае. Кемлівы ў справах; упраўны. *Р. чалавек.* ‖ *наз.* **расторо́пнасць**, -і, *ж.*

**РАСТАЎСЦЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які растаўсцеў; распаўнелы, тоўсты. *Растаўсцелая жанчына.*

**РАСТАЎСЦЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Стаць тоўстым; распаўнець. *Пад старасць дзед растаўсцеў.*

**РАСТАЎЧЫ́** *гл.* таўчы.

**РАСТА́ЦЬ**, -та́ну, -та́неш, -та́не; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Перайсці ў вадкі стан пад уздзеяннем цяпла. *Снег растаў.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Адтаяць, перастаць быць падмёрзлым. *Дарога растала.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Паступова знікнуць; разысціся, рассеяцца. *Гукі песні расталі ў бязмежнай далечыні. Туман растаў.* **4.** *перан.* Прыйсці ў замілаванне; расчуліцца, памякчэць. *Р. ад пахвалы.* ‖ *незак.* **растава́ць**, -таю́, -тае́ш, -тае́; -таём, -таяце́, -таю́ць; -тава́й. ‖ *наз.* **растава́нне**, -я, *н.*

**РАСТАЧЫ́ЦЬ**[1], -тачу́, -то́чыш, -то́чыць; -то́чаны; *зак., што* (спец.). Расшырыць, апрацаваць разцом. *Р. адтуліну* ‖ *незак.* **расто́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расто́чванне**, -я, *н. і* **расто́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* ‖ *прым.* **расто́чны**, -ая, -ае. *Р. станок.*

**РАСТАЧЫ́ЦЬ**[2], -тачу́, -то́чыш, -то́чыць; -то́чаны; *зак., што.* Згрызці, праесці, патачыць у многіх месцах. *Шашаль растачыў сцяну.* ‖ *незак.* **расто́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расто́чванне**, -я, *н.*

**РАСТАЧЫ́ЦЬ**[3], -тачу́, -то́чыш, -то́чыць; -то́чаны; *зак., што.* Прытачыўшы, зрабіць шырэйшым. *Р. спадніцу.* ‖ *незак.* **расто́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расто́чванне**, -я, *н. і* **расто́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.*

**РАСТВАРА́ЛЬНІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Рэчыва, здольнае раствараць іншае рэчыва.

**РАСТВАРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які здольны растварацца ў вадкасці. ‖ *наз.* **раствара́льнасць**, -і, *ж.*

**РАСТВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -о́рыцца; *зак.* Утварыць у злучэнні з вадкасцю аднародную сумесь. ‖ *незак.* **раствара́цца**, -а́ецца.

**РАСТВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -во́рыш, -во́рыць; -во́раны; *зак., што.* Прымусіць растварыцца. *Р. цукар у вадзе.* ‖ *незак.* **раствара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **растварэ́нне**, -я, *н.*

**РАСТВО́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вадкасць, атрыманая растварэннем якога-н. рэчыва ў вадзе або іншай вадкасці. *Содавы р.* **2.** У будаўнічай справе: вязкая цестападобная сумесь цэменту, пяску і вады. ‖ *прым.* **раство́рны**, -ая, -ае.

**РАСТЛУМАЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для растлумачэння чаго-н. *Растлумачальная работа.*

**РАСТЛУМА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што.* Раскрыць сэнс чаго-н., зрабіць ясным, зразумелым. *Р. рашэнне задачы.* ‖ *незак.* **растлума́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **растлумачэ́нне**, -я, *н.*

**РАСТЛУСЦЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *растаўсцелы. Р. певень.*

**РАСТЛУСЦЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Тое, што і *растаўсцець.*

**РАСТО́К**, -тка́ *і* -тку́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* **1.** -тку́, *гл.* рост. **2.** -тка́. Тое, што і *парастак.*

**РАСТО́ПЛІВАЦЦА** *гл.* растапіцца.

**РАСТО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* растапіць.

**РАСТО́ПТВАННЕ** *гл.* растаптаць.

**РАСТО́ПТВАЦЦА** *гл.* растаптацца.

**РАСТО́ПТВАЦЬ** *гл.* растаптаць.

**РАСТО́ЧВАННЕ**[1], *гл.* растачыць[1].

**РАСТО́ЧВАННЕ**[2], *гл.* растачыць[2].

**РАСТО́ЧВАННЕ**[3], *гл.* растачыць[3].

**РАСТО́ЧВАЦЬ**[1] *гл.* растачыць[1].

**РАСТО́ЧВАЦЬ**[2] *гл.* растачыць[2].

**РАСТО́ЧВАЦЬ**[3] *гл.* растачыць[3].

**РАСТО́ЧКА**[1] *гл.* растачыць[1].

**РАСТО́ЧКА**[2] *гл.* растачыць[3].

**РАСТРАВІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -тра́віцца; *зак.* **1.** Моцна раздражніцца чым-н. (разм.). **2.** Паглыбіцца або падняцца ад дзеяння кіслаты або іншых едкіх рэчываў (пра рэльеф малюнка, адбітку; спец.). ‖ *незак.* **растра́ўліваііца**, -аецца *і* **раструўля́цца**, -я́ецца.

**РАСТРАВІ́ЦЬ**, -аўлю́, -а́віш, -а́віць; -а́ўлены; *зак.* **1.** *каго-што.* Моцна раздражніць (разм.). **2.** *што.* Паглыбіць або падняць рэльеф чаго-н. з дапамогай кіслаты ці іншых едкіх рэчываў (спец.). ‖ *незак.* **растраўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **растра́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **растра́ўліванне**, -я, *н.*

**РАСТРА́ЛЬНЫ** *гл.* ростра.

**РАСТРАНЖЫ́РВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* (разм.). Тое, што і *транжырыць. Р. грошы.* ‖ *наз.* **растранжы́рванне**, -я, *н.*

**РАСТРАНЖЫ́РЫЦЬ** *гл.* транжырыць.

**РАСТРАПА́НЫ**, -ая, -ае. Які растрапаўся; раскалмачаны. *Растрапаныя валасы.* ‖ *наз.* **растрапа́насць**, -і, *ж.*

**РАСТРАПА́ЦЦА**, -траплю́ся, -трэ́плешся, -трэ́плецца; -трапі́ся; *зак.* Раскідацца ў беспарадку; раскалмаціцца. ‖ *незак.* **растрэ́пвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСТРАПА́ЦЬ**, -траплю́, -трэ́плеш, -трэ́пле; -трапі́; -трапа́ны; *зак., што.* **1.** *гл.* трапаць. **2.** Раскалмаціць, раскідаць у беспарадку. *Вецер растрапаў валасы.* ‖ *незак.* **растрэ́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСТРА́ТА**, -ы, *ДМ* -ра́це, *мн.* -ы, -ра́т, *ж.* **1.** *гл.* растраціць. **2.** Незаконна растрачаная сума, маёмасць. *Пакрыць растрату.*

**РАСТРА́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які зрабіў растрату (у 2 знач.). ‖ *ж.* **растра́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**РАСТРА́ЦІЦЦА**, -ра́чуся, -ра́цішся, -ра́ціцца; *зак.* **1.** Растраціць грошы, сродкі і пад. *Р. на вяселле.* **2.** Незаконна расходаваць чужыя грошы, маёмасць і інш.; зрабіць растрату (у 2 знач.). ‖ *незак.* **растра́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСТРА́ЦІЦЬ**, -а́чу, -а́ціш, -а́ціць; -а́чаны; *зак., што.* **1.** Расходаваць, патраціць. *Р. стыпендыю.* **2.** *перан.* Патраціць на што-н. дробнае, пустое, непрыстойнае (сілы, пачуцці і пад.). *Р. здароўе. Р. энергію.* **3.** Незаконна расходаваць (грошы, маёмасць і інш.) *Р. казённыя грошы.* ‖ *незак.* **растра́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **растра́чванне**, -я, *н.* *і* **растра́та**, -ы, *ж.* (да 3 знач.).

**РАСТРУ́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Конусападобнае расшырэнне (трубы, адзення, абутку). *Боты з раструбамі.* ‖ *прым.* **растру́бны**, -ая, -ае (спец.).

**РАСТРУБІ́ЦЬ** *гл.* трубіць.

**РАСТРУСІ́ЦЬ**, -рушу́, -ру́сіш, -ру́сіць; -ру́шаны; *зак., што* (разм.). Раскідаць тонкім, рыхлым слоем для прасушвання. *Р. сена.* ‖ *незак.* **растру́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **растру́шванне**, -я, *н.* *і* **растру́ска**, -і, *ДМ* -ру́сцы, *ж.*

**РАСТРУ́ШЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шчыцца; *зак.* (разм.). Раздрабіцца ад удару або пад моцным цяжарам. *Ад удару раструшчылася шкло.* ‖ *незак.* **растру́шчвацца**, -аецца.

**РАСТРУ́ШЧЫЦЬ**, -шчу, -шчыш, -шчыць; -шчаны; *зак., каго-што* (разм.). Ударыўшы, націснуўшы чым-н., раздрабіць. *Р. шкло. Р. косць.* ‖ *незак.* **растру́шчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **растру́шчванне**, -я, *н.*

**РАСТРЫБУШЫ́ЦЬ**, -бушу́, -бу́шыш, -бу́шыць; -бу́шаны; *зак.* (разм.). **1.** *каго (што).* Пачысціць, выдаліўшы вантробы (рыбу, птушку і пад.); распатрашыць, выпатрашыць. **2.** *што, перан.* Выкінуць, растрэсці што-н.; дастаць тое, што знаходзіцца ўнутры. *Р. чамадан.* ‖ *незак.* **растрыбу́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСТРЫВО́ЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *зак.* Моцна ўстрывожыцца. ‖ *незак.* **растрыво́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСТРЫВО́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць, -жаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Выклікаць у кім-н. моцную трывогу; устрывожыць. *Р. непрыемнай навіной. Р. душу.* **2.** *што.* Прычыніць боль, дакрануўшыся да чаго-н. балючага; развярэдзіць (разм.). *Р. рану.* ‖ *незак.* **растрыво́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСТРЭ́ПВАЦЦА** *гл.* растрапацца.

**РАСТРЭ́ПВАЦЬ** *гл.* растрапаць.

**РАСТРЭ́СКАНЫ**, -ая, -ае. Пакрыты трэшчынамі. *Р. камель.*

**РАСТРЭ́СКАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* Даць многа трэшчын, пакрыцца трэшчынамі. *Кубак растрэскаўся.* ‖ *незак.* **растрэ́скваііца**, -аецца.

**РАСТРЭ́СЦІ**, -расу́, -расе́ш, -расе́; -расём, -расяце́, -расу́ць; растро́с, -рэ́сла *і* -расла́, -рэ́сла *і* -расло́; -расі́; -рэ́сены; *зак.* **1.** *што.* Трасучы, раскідаць, рассыпаць. *Р. сена.* **2.** *што, перан.* Страціць, згубіць (разм.). *Пакуль ехаў, растрос усе свае веды.* **3.** *што.* Разбурыць, прымусіць распасціся. *Р. воз.* **4.** *каго-што.* Натаміць, намучыць пры трасучай яздзе (разм.). *За дарогу яго растрэсла* (безас.). ‖ *незак.* **растраса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **растрэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **растраса́нне**, -я, *н.* *і* **растрэ́сванне**, -я, *н.*

**РАСТРЭ́СЦІСЯ**, -расу́ся, -расе́шся, -расе́цца; -расёмся, -расяцё́ся, -расу́цца; растро́ссе, -рэ́слася *і* -расла́ся, -рэ́слася *і* -расло́ся; -расі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раскідацца, рассыпацца. *Валасы яе растрэсліся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Страціцца, згубіцца (разм.). *Усе мае нататкі растрэсліся.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разбурыцца, распасціся. *Воз з сенам растросся.* **4.** Натаміцца, намучыцца ад трасучай язды (разм.). ‖ *незак.* **растраса́цца**, -а́ецца *і* **растрэ́свацца**, -аецца.

**РАСТУ́ЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Пашкодзіць, тузаючы. *Авечкі растузалі снапы.*

**РАСТУЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ту́ліцца; *зак.* (разм.). Перастаць быць стуленым; раскрыцца. ‖ *незак.* **расту́львацца**, -аецца.

**РАСТУЛІ́ЦЬ**, -тулю́, -ту́ліш, -ту́ліць; -ту́лены; *зак., што* (разм.). Развесці стуленыя парныя часткі чаго-н. *Р. далоні. Р. крыссе паліто.* ‖ *незак.* **расту́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСТУШАВА́ЦЬ**, -шу́ю, -шу́еш, -шу́е; -шу́й; -шава́ны; *зак., што* (спец.). Раўнамерна расцерці, размазаць туш, аловак у ценявых месцах рысунка. *Р. чарцёж.* ‖ *незак.* **растушо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **растушо́ўванне**, -я, *н.* *і* **растушо́ўка**, -і, *ДМ* -шо́ўцы, *ж.*; *прым.* **растушо́вачны**, -ая, -ае.

**РАСТУШО́ЎКА**, -і, *ДМ* -шо́ўцы, *ж.* (спец.). **1.** *гл.* растушаваць. **2.** *мн.* -і, -шо́вак. Палачка з мяккага матэрыялу для растушоўвання грунтоўкі, накладвання грыму.

**РАСТЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Уваткнуць у розныя месцы ўсё, многае. *Р. кніжкі па паліцах.* ‖ *незак.* **растыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАСТЭРМІНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., што.* Размеркаваць на некалькі тэрмінаў. *Р. выплату даўгоў.* ‖ *незак.* **растэрміно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **растэрміно́ўка**, -і, *ДМ* -но́ўцы, *ж.*

**РАСФАРБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* Распісаць (у 4 знач.), размаляваць рознымі фарбамі. ‖ *незак.* **расфарбо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расфарбо́ўванне**, -я, *н.* *і* **расфарбо́ўка**, -і, *ДМ* -бо́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **расфарбо́вачны**, -ая, -ае.

**РАСФАРБО́ЎКА**, -і, *ДМ* -бо́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* расфарбаваць. **2.** Спалучэнне колераў. *Тканіна яркай расфарбоўкі.*

**РАСФАРМІРАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ру́ецца; *зак.* Спыніць сваё існаванне ў якасці арганізаванай адзінкі. *Гарнізон расфарміраваўся.* ‖ *незак.* **расфармірóўвацца**, -аецца.

**РАСФАРМІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Спыніць існаванне чаго-н. як арганізаванай адзінкі. *Р. полк.* ‖ *незак.* **расфарміро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расфармірава́нне**, -я, *н.* *і* **расфарміро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**РАСФАСАВА́ЦЬ** *гл.* фасаваць.

**РАСФАСО́ВАЧНЫ** *гл.* фасаваць.

**РАСФАСО́ЎВАННЕ** *гл.* фасаваць.

**РАСФАСО́ЎКА** *гл.* фасаваць.

**РАСФАСО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца расфасоўкай. ‖ *ж.* **расфасо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**РАСФРАНЦІ́ЦЦА**, -ранчу́ся, -ранці́шся, -ранці́цца; -ранці́мся, -ранці́цеся, -ранця́цца; *зак.* (разм.). Адзецца па-моднаму, франтавата.

**РАСФРА́НЧАНЫ**, -ая, -ае (разм.). Адзеты па-моднаму, франтавата. *Расфранчаная публіка.*

**РАСФУФЫ́РАНЫ**, -ая, -ае (разм., неадабр.). Занадта крыклівa і безгустоўна адзеты.

**РАСФУФЫ́РЫЦЦА**, -фы́руся, -фы́рышся, -фы́рыцца; *зак.* (разм., неадабр.). Занадта крыклíва і безгустоўна адзецца. ‖ *незак.* **расфуфы́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСХА́ДЖВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Хадзіць павольна ўзад і ўперад. *Р. па пакоі.*

**РАСХАДЗІ́ЦЦА**, -хаджу́ся, -хо́дзішся, -хо́дзіцца; *зак.* **1.** Прахадзіўшы доўга, прывыкнуць да хадзьбы, перастаць адчуваць стомленасць ад яе. *Расходзіўся, і ногі перасталі балець.* **2.** Пачаць хадзіць многа, сюды-туды. **3.** *перан.* Дайсці да крайняй ступені ў праяўленні чаго-н., у якіх-н. дзеяннях, разысціся. *Нервы расходзіліся. Расходзілася шалёная завіруха.* ‖ *незак.* **расхо́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСХАЛАДЗЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Стаць раўнадушным, халодным да каго-, чаго-н. *Расхаладзець да работы.*

**РАСХАЛАДЗІ́ЦЬ**, -ладжу́, -ло́дзіш, -ло́дзіць; -ло́джаны; *зак., каго-што.* Зрабіць раўнадушным, халодным у адносінах да каго-, чаго-н.; зменшыць сілу пачуцця. ‖ *незак.* **расхало́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расхало́джванне**, -я, *н.*

**РАСХАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што* (разм.). Хутка разабраць, раскупіць. ‖ *незак.* **расхо́пліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **расхапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**РАСХАПІ́ЦЬ**, -хаплю́, -хо́піш, -хо́піць; -хо́плены; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Тое, што і *расхапаць.* **2.** *што.* Хутка развесці, разамкнуць, разняць. *Р. рукі.* ‖ *незак.* **расхо́пліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **расхапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **расхо́пліванне**, -я, *н.*

**РАСХАЦЕ́ЦЦА**, -хо́чацца; *безас., зак., чаго і з інф.* (разм.). Перастаць хацецца. *Расхацелася спаць.*

**РАСХАЦЕ́ЦЬ**, -хачу́, -хо́чаш, -хо́ча; -хаці́; *зак., чаго і з інф.* (разм.). Перастаць хацець. *Р. есці.*

**РАСХВАЛІ́ЦЦА**, -валю́ся, -ва́лішся, -ва́ліцца; *зак.* (разм.). Пачаць празмерна хваліцца. ‖ *незак.* **расхва́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСХВАЛІ́ЦЬ**, -валю́, -ва́ліш, -ва́ліць; -ва́лены; *зак., каго-што.* Вельмі часта, не адзін раз пахваліць. *Р. вучня.* ‖ *незак.* **расхва́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расхва́льванне**, -я, *н.*

**РАСХВАЛЯВА́ЦЦА**, -лю́юся, -лю́ешся, -лю́ецца; -лю́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць моцна хвалявацца, стаць бурным (пра мора, раку, возера і пад.). *Мора расхвалявалася.* **2.** Моцна ўсхвалявацца. *Ветэран расхваляваўся ад успамінаў.*

**РАСХВАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ляв́аны; *зак., каго-што.* **1.** Прымусіць хвалявацца, зрабіць бурным (пра мора, раку, возера і пад.). *Вецер расхваляваў возера.* **2.** Моцна ўсхваляваць. *Успаміны расхвалявалі яго.*

**РАСХВАРЭ́ЦЦА**, -э́юся, -э́ешся, -э́ецца; *зак.* (разм.). Моцна і надоўга захварэць. *Нешта ён расхварэўся.* ‖ *незак.* **расхво́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСХВАСТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -во́шчацца; *зак.* (разм.). **1.** Сапсавацца, размачаліцца ад хвастання. *Пуга расхвасталася.* **2.** Разбіцца, раскалаціцца. *Міска расхвасталася.* ‖ *незак.* **расхво́стваццa**, -аецца.

**РАСХВАСТА́ЦЬ**, -вашчу́, -во́шчаш, -во́шча; -вашчы́; -баста́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Сапсаваць хвастаннем, размачаліць. *Р. пугу.* **2.** Разбіць, раскалаціць. *Р. гаршчок.* ‖ *незак.* **расхво́стваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСХВАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* Тое, што і *расхапаць.* ‖ *незак.* **расхва́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСХІЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -хі́ліцца; *зак.* Адхіліць, адысці ў розныя бакі (пра што-н. самкнутае). *Заслона расхілілася.* ‖ *незак.* **расхіля́цца**, -я́ецца.

**РАСХІЛІ́ЦЬ**, -хілю́, -хі́ліш, -хі́ліць; -хі́лены; *зак., што.* Адхіліць, адвесці ў розныя бакі; разняць самкнутае. *Р. шторы.* ‖ *незак.* **расхіля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**РАСХІНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; *зак.* **1.** Раскінуць на сабе адзенне. *Расхініся, калі горача.* **2.** (*1 і 2 ас. адз. не ўжыв.*). Разысціся ў бакі, адхінуўшыся (пра краі, крыссе адзення). *Полы курткі расхінуліся.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раскрыцца (пра дзверы, акно, заслону і пад.). **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разгарнуцца (пра што-н. загорнутае). *Пакунак расхінуўся.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Расступіцца ў бакі, даўшы праход, месца. *Натоўп расхінуўся.* ‖ *незак.* **расхіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАСХІНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* **1.** *што.* Адвесці ў бакі, адхінуць захінутае; распасцерці. *Р. полы плашча. Р. кусты.* **2.** *што.* Раскрыць (дзверы, акно, заслону і пад.). **3.** *што.* Разгарнуць (што-н. загорнутае, складзенае, скручанае). *Р. торбу са снеданнем.* **4.** *каго-што.* Прымусіць расступіцца. *Р. натоўп.* ‖ *незак.* **расхіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **расхіна́нне**, -я, *н.*

**РАСХІСТА́НЫ**, -ая, -ае. Які стаў слабым, няўстойлівым, хісткім. *Старая расхістаная лесвіца.*

**РАСХІСТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Пачаць моцна хістацца. *Маятнік расхістаўся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць няўстойлівым ад хістання. *Слупок расхістаўся.* **3.** *перан.* Пахіснуцца, разладзіцца. *Дысцыпліна расхісталася.* ‖ *незак.* **расхі́ствацца**, -аецца.

**РАСХІСТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Раскалыхаць, разгушкаць. *Р. качэлі.* **2.** Хістаючы, зрабіць няўстойлівым. *Р. слуп.* **3.** *перан.* Разладзіць, падарваць. *Р. дысцыпліну.* ‖ *незак.* **расхі́стваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расхі́стванне**, -я, *н.*

**РАСХЛЁБАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Тое, што і *расхляба́ць.* ‖ *незак.* **расхлёбваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСХЛЁБВАЦЬ** *гл.* расхляба́ць, расхлёбаць.

**РАСХЛІСТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). Тое, што і *расхрыстацца.* ‖ *незак.* **расхлі́ствацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСХЛІСТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). Тое, што і *расхрыстаць. Р. грудзіну.* ‖ *незак.* **расхлі́стваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСХЛЯ́БАНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** У якім аслаблі мацаванні; расхістаны. *Расхлябаныя дзверы.* **2.** *перан.* Пазбаўлены ўстойлівасці, цвёрдасці, віхлясты. *Расхлябаная паходка.* **3.** *перан.* Недысцыплінаваны, неарганізаваны (неадабр.). *Р. чалавек.* ‖ *наз.* **расхля́банасць**, -і, *ж.*

**РАСХЛЯ́БАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* (разм.). Тое, што і *расхістацца* (у 2 і 3 знач.). ‖ *незак.* **расхля́бвацца**, -аецца.

**РАСХЛЯ́БАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Расхістаць. *Р. балты.* ‖ *незак.* **расхля́бваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСХЛЯБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Хлябаючы, з'есці ўсё. *Р. суп.* **2.** *перан.* Разблытаць, уладзіць што-н. заблытанае, непрыемнае (разм.). ‖ *незак.* **расхлёбваць**, -аю, -аеш, -ае. ◊ **Расхлёбваць кашу** (разм.) — разблытваць якую-н. складаную справу.

**РАСХЛЯ́БІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). Гразкі, з калюжынамі (пра дарогу). *Расхлябістая дарога.*

**РАСХЛЯ́БІЦА**, -ы, *ж.* (разм.). Гразь, бездараж. *Восень не бывае без расхлябіцы.*

**РАСХНЫ́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пачаць плакаць, выказваючы незадаволенасць кім-, чым-н. *Ну, годзе вам, расхныкаліся.*

**РАСХО́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Трата, расходаванне чаго-н. *Р. электраэнергіі.* **2.** звычайна *мн.* Сума зрасходаваных грошай; выдаткі. *У наступным месяцы будуць вялікія расходы.* **3.** Графа ў бухгалтарскіх кнігах для запісу выдаткаў; *проціл.* прыход. ◊ **Вывесці (пусціць, спісаць) у расход** (разм.) — знішчыць, расстраляць. **Кішэнныя расходы** — дробныя асабістыя расходы. ‖ *прым.* **расхо́дны**, -ая, -ае.

**РАСХО́ДАВАЦЦА**, -дуюся, -дуешся, -дуецца; -дуйся; *зак. і незак.* **1.** Патраціць (траціць) грошы на што-н. (разм.). *Р. на пакупкі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Патраціцца (трацідца), пайсці (ісці) на што-н. *Масла расходуецца эканомна.* ‖ *зак.* **зрасхо́давацца**, -дуюся, -дуешся, -дуецца; -дуйся. ‖ *наз.* **расхо́даванне**, -я, *н.*

**РАСХО́ДАВАЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны; *зак. і незак., што.* **1.** Патраціць (траціць) на што-н. *Р. грошы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Спажыць (спажываць; разм.). *Сучасныя электрапрыборы расходуюць мала электраэнергіі.* ‖ *зак.* яшчэ **зрасхо́даваць**, -дую, -дуеш, -дуе; -дуй; -даваны. ‖ *наз.* **расхо́даванне**, -я, *н.*

**РАСХО́ДЖВАЦЦА** *гл.* расхадзіцца.

**РАСХО́ДЗІНЫ**, -дзін (разм.). Разыход людзей з якога-н. сходу, бяседы і пад. *Пе-*

*рад расходзінамі бацькоў паклікала настаўніца.*

**РАСХО́ДНІК**, -у, *м.* Травяністая расліна сямейства таўсцянкавых з жоўтым мясістым сцяблом і лісцем; зайцава капуста.

**РАСХО́ПЛІВАННЕ** *гл.* расхапіць.

**РАСХО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* расхапаць, расхапіць.

**РАСХРАБРЫ́ЦЦА**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; -ры́мся, -рыце́ся, -ра́цца; *зак.* (разм.). Набрацца храбрасці; асмялець.

**РАСХРАПЦІ́СЯ**, -храпу́ся, -храпе́шся, -храпе́цца; -храпёмся, -храпяце́ся, -храпу́цца; расхро́пся, -рапла́ся, -ло́ся; -храпі́ся; *зак.* (разм.). Пачаць моцна і доўга храпці.

**РАСХРЫСТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). Шырока расхінуць на сабе адзенне. ‖ *незак.* **расхры́стваца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСХРЫСТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -ры́станы; *зак., што* (разм.). Шырока расхінуць адзенне. ‖ *незак.* **расхры́стваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСХУ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Раскруціць, раскрыць каго-, што-н. захутанае. *Р. дзіця. Р. хустку.* ‖ *незак.* **расху́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **расху́тацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **расху́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **расху́тванне**, -я, *н.*

**РАСЦАЛАВА́ЦЦА**, -лу́юся, -лу́ешся, -лу́ецца; -лу́йся; *зак.* Моцна, некалькі разоў пацалавацца адзін з адным. ‖ *незак.* **расцало́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСЦАЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак., каго-што.* Моцна, некалькі разоў пацалаваць. ‖ *незак.* **расцало́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСЦАНІ́ЦЬ**, -цаню́, -цэ́ніш, -цэ́ніць; -цэ́нены; *зак.* **1.** *што.* Вызначыць цану чаго-н.; ацаніць. *Р. тавар.* **2.** *перан., каго-што.* Вызначыўшы свае адносіны да каго-, чаго-н., даць ацэнку, ацаніць. *Р. чый-н. талент.* ‖ *незак.* **расцэ́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расцэ́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **расцэ́ньванне**, -я, *н.*; *прым.* **расцэ́начны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Расцэначная ведамасць.*

**РАСЦВЕ́ЛЬВАЦЬ** *гл.* расцвяліць.

**РАСЦВІСЦІ́**, -цвіту́, -цвіцё́ш, -цвіце́; -цвіцём, -цвіцяце́, -цвіту́ць; расцвіў, -вiла́, -ло́; -цвіці́; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пакрыцца цветам, кветкамі; распусціцца. *Расцвілі вішні.* **2.** *перан.* Дасягнуць росквіту фізічных і духоўных сіл. *Дзяўчына расцвіла.* **3.** *перан.* Дасягнуць высокага развіцця, працвітання. *Талент пісьменніка расцвіў.* ‖ *незак.* **расцвіта́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **расцвіта́нне**, -я, *н. і* **ро́сквіт**, -у, *м.*

**РАСЦВЫ́РКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). Пачаць доўга, беспераастанку цвыркаць. *Расцвыркаўся цвыркун.*

**РАСЦВЯЛІ́ЦЬ**, -вялю́, -ве́ліш, -ве́ліць; -ве́лены; *зак.* (разм.). **1.** *каго (што).* Раздражніць, раззлаваць. **2.** *што.* Развярэдзіць. *Р. рану.* ‖ *незак.* **расцве́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСЦЕ́ЛЬВАЦЦА** *гл.* расцяліцца.

**РАСЦЕРАБІ́ЦЬ**, -цераблю́, -цярэ́біш, -цярэ́біць; -цярэ́блены; *зак., што.* Ачысціць ад хмызняку (лес). ‖ *незак.* **расцярэ́бліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расцярэ́бліванне**, -я, *н. і* **расцяро́б**, -у, *м.*

**РАСЦЕРУШЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цяру́шыцца; *зак.* **1.** Расцерціся на дробныя часцінкі. *Тытунь расцерушыўся.* **2.** Рассыпацца пры перавозцы, пераносе. *Соль расцерушылася.* ‖ *незак.* **расцяру́швацца**, -аецца.

**РАСЦЕРУШЫ́ЦЬ**, -церушу́, -цяру́шыш, -цяру́шыць; -цяру́шаны; *зак., што.* **1.** Рассыпаць роўным рыхлым пластом. *Р. сена тонкім слоем.* **2.** Рассыпаць, разгубіць, перавозячы, пераносячы. *Р. жыта па дарозе.* ‖ *незак.* **расцяру́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расцяру́шванне**, -я, *н.*

**РАСЦЕ́РЦІ**, разатру́, разатрэ́ш, разатрэ́; разатро́м, разатраце́, разатру́ць; расцёр, -це́рла; разатры́; расцёрты; *зак.* **1.** *што.* Тручы, размяць, раздрабніць, ператварыць у аднародную масу. *Р. тытунь.* **2.** *што.* Націскаючы, размазаць па якой-н. паверхні. *Р. крэм на руках.* **3.** *каго-што.* Зрабіць масаж, моцна пацерці. *Р. спіну.* **4.** *што.* Ходзячы, ездзячы, пратаптаць, пракласці (сцежку, дарогу і пад.; разм.). *Р. дарогу.* ‖ *незак.* **расціра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **расціра́нне**, -я, *н. і* **расці́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* ‖ *прым.* **расці́рачны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.) *і* **расціра́льны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.; спец.).

**РАСЦЕ́РЦІСЯ**, разатру́ся, разатрэ́шся, разатрэ́цца; разатро́мся, разатраце́ся, разатру́цца; расцёрся, -це́рлася; разатры́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Размяцца, ператварыцца ў парашок і пад. у працэсе трэння. **2.** Нацерці сябе чым-н. *Р. мокрым ручніком.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пракласціся, пратаптацца (пра дарогу, сцежку і пад.; разм.). ‖ *незак.* **расціра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *наз.* **расціра́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**РАСЦЁЛ** *гл.* расцяліцца.

**РАСЦІ́**, расту́, расце́ш, расце́; расцём, расцяце́, расту́ць; рос, расла́, -сло́; *незак.* **1.** Пра жывыя істоты, арганізмы: жывучы, павялічвацца. *Дзеці растуць. Дрэвы растуць.* **2.** Праводзіць дзе-н., у якіх-н. умовах сваё дзяцінства, раннія гады жыцця. *Хлопчык рос у вёсцы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Павялічвацца колькасна, у памерах, аб'ёме. *Расце ўраджай пшаніцы. Расце попыт на тавары.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Мацнець, узмацняцца. *У душы расло незадавальненне. Расце аўтарытэт.* **5.** Удасканальвацца, развівацца. *Ён расце як вучоны.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Аб раслінах: распаўсюджвацца, існаваць; знаходзіцца ў працэсе росту. *Мандарыны растуць на поўдні. У садзе раслі толькі яблыні.* ‖ *зак.* **вы́расці**, -расту, -расцеш, -расце; -расцем, -расцеце, -растуць; вы́рас, -сла.

**РАСЦІНА́ЦЬ** *гл.* расцяць.

**РАСЦІ́СНУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* **1.** Аказацца расціснутым, падушаным. *Яйкі ў кошыку расціснуліся.* **2.** Раскрыцца, расшчаміцца. *Кулакі расціснуліся.* ‖ *незак.* **расціска́цца**, -а́ецца.

**РАСЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Націснуўшы, раздушыць, расплюшчыць. *Р. ягады.* **2.** *што.* Разняць, развесці, расшчаміць (сціснутае). *Р. зубы.* ‖ *незак.* **расціска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **расціска́нне**, -я, *н.*

**РАСЦІ́ЦЬ**, рашчу́, ро́сціш, ро́сціць; ро́сцім, ро́сціце, ро́сцяць; *незак.* **1.** *што.* Забяспечваць рост, развіццё (раслін); вырошчваць. *Р. сад.* **2.** *каго.* Гадаваць, выхоўваць. *Р. дзяцей.* **3.** Садзейнічаць развіццю каго-, чаго-н. *Р. кадры.* **4.** *што.* Прарошчваць на солад. *Р. ячмень.* ‖ *наз.* **рашчэ́нне**, -я, *н.*

**РАСЦУГЛЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́ецца; *зак.* Вызваліцца ад цугляў. *Конь расцугляўся.*

**РАСЦУГЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* Вызваліць каня ад цугляў. *Р. каня.*

**РАСЦЫРЫ́КАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* (разм.). Пачаць доўга беспераастанку цырыкаць. *Вераб'і расцырыкаліся.*

**РАСЦЭ́НАЧНЫ** *гл.* расцаніць, расцэнка.

**РАСЦЭ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* расцаніць. **2.** Устаноўленая на што-н. цана, размер аплаты за што-н. *Знізіць расцэнкі.* ‖ *прым.* **расцэ́начны**, -ая, -ае.

**РАСЦЭ́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто вызначае расцэнкі. ‖ *ж.* **расцэ́ншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**РАСЦЭ́НЬВАННЕ** *гл.* расцаніць.

**РАСЦЭ́НЬВАЦЬ** *гл.* расцаніць.

**РАСЦЮКАВА́ЦЬ**, -кую, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак., што.* Развязаць, распакаваць цюк. *Р. сена.* ‖ *незак.* **расцюко́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расцюко́ўванне**, -я, *н. і* **расцюко́ўка**, -і, *ДМ* -ко́ўцы, *ж.*

**РАСЦЯГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* **1.** Разабраць, разнесці ў некалькі прыёмаў у розныя месцы. *Р. паркан на дровы.* **2.** Раскрасці (разм.).

**РАСЦЯ́ГВАННЕ** *гл.* расцягнуць.

**РАСЦЯ́ГВАЦЦА** *гл.* расцягнуцца.

**РАСЦЯ́ГВАЦЬ** *гл.* расцягнуць.

**РАСЦЯ́ГНЕНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *расцягнуты.* ‖ *наз.* **расцягненасць**, -і, *ж.*

**РАСЦЯ́ГНУТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які падоўжылі, расцягнулі. *Расцягнутая вяроўка.* **2.** *перан.* Празмерна працяглы, доўгі. *Р. даклад.* ‖ *наз.* **расця́гнутасць**, -і, *ж.*

**РАСЦЯГНУ́ЦЦА**, -цягну́ся, -ця́гнешся, -ця́гнецца; -цягні́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Ад нацягвання падоўжыцца, павялічыцца. *Кофта расцягнулася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пашкодзіцца ад моцнага напружання, удару, неасцярожнага руху (пра звязкі, сухажылле і пад.). **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Рухаючыся, размясціцца доўгім радам на вялікай прасторы. *Калона расцягнулася.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Размяс-

ціцца паласой на якой-н. адлегласці. *Вёсачка расцягнулася на два кіламетры.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць вельмі працяглым; зацягнуцца. *Работа расцягнулася на тыдзень.* **6.** Легчы, выцягнуўшыся. *Р. на лаўцы.* **7.** Упасці ўсім целам. *Зачапіўся нагою і расцягнуўся на зямлі.* ‖ *незак.* **расця́гвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСЦЯГНУ́ЦЬ**, -цягну́, -ця́гнеш, -ця́гне; -цягні́; -ця́гнены *і* -ця́гнуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Нацягваючы, павялічыць у аб'ёме ці даўжыні. *Р. боты.* **2.** *што.* Нацягнуўшы, раскласці, развесіць, разаслаць. *Р. дыван на падлозе.* **3.** *што.* Размясціць доўгім радам або паласой на якой-н. адлегласці. *Р. абоз. Р. фронт.* **4.** *што.* Пашкодзіць пры моцным напружанні, удары, неасцярожным руху (сухажылле, звязкі і пад.). **5.** *што.* Зрабіць празмерна працяглым. *Р. работу на месяц.* **6.** *што.* Разабраць, разнесці па частках у розныя бакі. *Р. бярвенне.* **7.** *што.* Раскрасці (разм.). **8.** *каго (што).* Адцягнуць адно ад аднаго, разняць. ‖ *незак.* **расця́гваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расцяжэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 4 знач.), **расця́жка**, -і, *ДМ* -жцы, *ж.* (да 1, 2 і 4 знач.; разм.) *і* **расця́гванне**, -я, *н.*

**РАСЦЯЖНЫ́**, -а́я, -о́е. Такі, які можна расцягнуць (у 1 знач.).

**РАСЦЯЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* расцягнуць. **2.** Пашкоджанне тканак (звязкі, сухажылля) моцным напружаннем, ударам, рыўком. *Р. сухажылля.*

**РАСЦЯЛІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -цэ́ліцца; *зак.* (разм.). Ацяліцца (звычайна з цяжкасцямі). ‖ *незак.* **расцэ́львацца**, -аецца. ‖ *наз.* **расцёл**, -у, *м.*

**РАСЦЯ́ПА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.*; *ДМ* -е, *Т* -ай (-аю), *ж.*, *мн.* -ы, -цяп (разм., неадабр.). Някемлівы, няўважлівы, рассеяны чалавек.

**РАСЦЯРО́Б** *гл.* расцерабіць.

**РАСЦЯРУ́ШВАННЕ** *гл.* расцерушыць.

**РАСЦЯРУ́ШВАЦЦА** *гл.* расцерушыцца.

**РАСЦЯРУ́ШВАЦЬ** *гл.* расцерушыць.

**РАСЦЯРЭ́БЛІВАННЕ** *гл.* расцерабіць.

**РАСЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ** *гл.* расцерабіць.

**РАСЦЯ́ЦЬ**, разатну́, разатнե́ш, разатне́; разатнём, разатняце́, разатну́ць; расця́ў, -цяла́, -ло́; разатні́; расця́ты; *зак.*, *што* (разм.). **1.** Разняць, развесці, расціснуць. *Р. зубы.* **2.** Рассячы, разрэзаць. ‖ *незак.* **расціна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАСЦЯЧЫ́СЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чэ́цца; расцёкся, -цякла́ся, -ло́ся; **1.** Пацячы ў розных кірунках па якой-н. паверхні. *Вада расцяклася па падлозе.* **2.** *перан.* Распаўсюдзіцца дзе-н., па чым-н. *Па целе расцяклася цеплыня. Расцёкся пах свежага хлеба.* ‖ *незак.* **расцяка́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **расцяка́нне**, -я, *н.*

**РАСЧАКА́НІЦЬ** *гл.* чаканіць.

**РАСЧАПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чэ́піцца; *зак.* Раз'яднацца (пра што-н. счэпленае). *Вагоны расчапіліся.* ‖ *незак.* **расчэ́плівацца**, -аецца. ‖ *наз.* **расчапле́нне**, -я, *н.* *і* **расчэ́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (спец.).

**РАСЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю́, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак.*, *што.* Раз'яднаць (счэпленае). *Р. вагоны.* ‖ *незак.* **расчэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расчэ́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* *і* **расчапле́нне**, -я, *н.* (спец.).

**РАСЧАРАВА́ННЕ**, -я, *н.* Пачуццё, стан незадаволенасці, выкліканы нyздзейсненымі спадзяваннямі, надзеямі, марамі; страта веры ў каго-, што-н. *Глыбокае р.*

**РАСЧАРАВА́НЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ў стане расчаравання; які сведчыць аб расчараванні. ‖ *наз.* **расчарава́насць**, -і, *ж.*

**РАСЧАРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *зак.*, *у кім-чым.* Зведаць расчараванне. *Р. ў выніках працы.* ‖ *незак.* **расчаро́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСЧАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.*, *каго (што).* Выклікаць расчараванне. ‖ *незак.* **расчаро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСЧАРЦІ́ЦЬ**, -чарчу́, -чэ́рціш, -чэ́рціць; -чэ́рцім, -чэ́рціце, -чэ́рцяць; -чэ́рчаны; *зак.*, *што.* Нанесці на што-н. штрыхі, лініі ў патрэбных кірунках. *Р. паперу.* ‖ *незак.* **расчэ́рчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расчэ́рчванне**, -я, *н.*

**РАСЧАСА́ЦЦА**, -чашу́ся, -чэ́шашся, -чэ́шацца; -чэ́шамся, -чэ́шацеся, -чэ́шуцца; -чашы́ся; *зак.* Расчасаць сабе валасы. ‖ *незак.* **расчэ́свацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСЧАСА́ЦЬ**[1], -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чэ́шам, -чэ́шаце, -чэ́шуць; -чашы́; -часа́ны *і* -чэ́саны; *зак.*, *што.* Расправіць, разраўняць, прыгладзіць грэбенем. *Р. валасы. Р. бараду.* ‖ *незак.* **расчэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расчэ́сванне**, -я, *н.*

**РАСЧАСА́ЦЬ**[2], -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чэ́шам, -чэ́шаце, -чэ́шуць; -чашы́; -часа́ны; *зак.*, *што.* Высечы, расшырыць адтуліну сякерай. ‖ *незак.* **расчэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расчэ́сванне**, -я, *н.*

**РАСЧАХЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; -лёны; *зак.*, *што.* Зняць чахол з чаго-н. *Р. гарматы.* ‖ *незак.* **расчахля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**РАСЧА́ЦЬ**, разачну́, разачне́ш, разачне́; разачнём, разачняце́, разачну́ць; разачні́; расча́ты; *зак.*, *што* (разм.). Пачаць, распачаць (рабіць што-н.). *Р. будаўніцтва школы.* ‖ *незак.* **расчына́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**РАСЧЛЯНІ́ЦЦА** *гл.* чляніцца.

**РАСЧЛЯНІ́ЦЬ** *гл.* чляніць.

**РАСЧЛЯНЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ня́ецца; *незак.* Тое, што і *чляніцца.* ‖ *наз.* **расчлянe̋нне**, -я, *н.*

**РАСЧЛЯНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.*, *што.* Тое, што і *чляніць.*

**РАСЧО́СКА**, -і, *ДМ* -чо́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Грэбень для расчэсвання валасоў. *Металічная р.*

**РАСЧУ́ЛЕНЫ**, -ая, -ае. Прыемна ўсхваляваны і замілаваны; які паддаўся чуллівасці; які выражае спагаду, спачуванне. *Расчулена* (прысл.) *дзякаваць. Р. чалавек. Р. голас.* ‖ *наз.* **расчу́ленасць**, -і, *ж.*

**РАСЧУ́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* Паддацца пачуццю прыемнага хвалявання, замілавання. *Р. да слёз.* ‖ *незак.* **расчу́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСЧУ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.*, *каго (што).* Выклікаць пачуццё прыемнай усхваляванасці. *Словы сына расчулілі маці.* ‖ *незак.* **расчу́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСЧУ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* (разм.). **1.** Пачаць многа і энергічна чухацца (у 1 знач.). **2.** *перан.* Пазбавіцца стану санлівасці, вяласці; раскатурхацца. ‖ *незак.* **расчу́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСЧУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.*, *што* (разм.). Чухаючы, пашкодзіць. *Р. руку.* ‖ *незак.* **расчу́хваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расчу́хванне**, -я, *н.*

**РАСЧУ́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; *зак.*, *каго-што* (разм.). Выразна, дакладна пачуць. *Не ўсе яго словы можна было р.*

**РАСЧЫНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чы́ніцца; *зак.* Адчыніцца, стаць адчыненым. *Дзверы расчыніліся.* ‖ *незак.* **расчыня́цца**, -я́ецца.

**РАСЧЫНІ́ЦЬ**, -чыню́, -чы́ніш, -чы́ніць; -чы́нены; *зак.*, *што.* Адчыніць што-н. зачыненае. *Р. дзверы. Р. чамадан.* ‖ *незак.* **расчыня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **расчыне́нне**, -я, *н.*

**РАСЧЫРВАНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які расчырванеўся, стаў румяным, чырвоным. *Р. твар.*

**РАСЧЫРВАНЕ́ЦЦА**, -е́юся, -е́ешся, -е́ецца; *зак.* Пакрыцца чырванню, румянцам.

**РАСЧЫ́СЦІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* Стаць чыстым, свабодным ад чаго-н. *Неба расчысцілася ад хмар.* ‖ *незак.* **расчышча́цца**, -а́ецца.

**РАСЧЫ́СЦІЦЬ**, -чы́шчу, -чы́сціш, -чы́сціць; -чы́шчаны; *зак.*, *што.* Ачысціць, вызваліць ад чаго-н.; прыбраць што-н. *Р. дарожку ад снегу.* ‖ *незак.* **расчышча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **расчышчэ́нне**, -я, *н.* *і* **расчы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**РАСЧЫТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.*, *што.* З цяжкасцю разабраць невыразна напісанае. *Не расчытаў слова.* ‖ *незак.* **расчы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСЧЫХВО́СЦІЦЬ**, -во́шчу, -во́сціш, -во́сціць; -во́сці; -во́шчаны; *зак.*, *каго-што* (разм.). Разбіць, разграміць; раскрытыкаваць.

**РАСЧЭ́ПКА** *гл.* расчапіцца, расчапіць.

**РАСЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *гл.* расчапіцца.

**РАСЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *гл.* расчапіць.

**РАСЧЭ́РЧВАННЕ** *гл.* расчарціць.

**РАСЧЭ́РЧВАЦЬ** *гл.* расчарціць.

**РАСЧЭ́СВАННЕ**[1] *гл.* расчасаць[1].

**РАСЧЭ́СВАННЕ**[2] *гл.* расчасаць[2].

**РАСЧЭ́СВАЦЦА** *гл.* расчасацца.

**РАСЧЭ́СВАЦЬ**[1] *гл.* расчасаць[1].

**РАСЧЭ́СВАЦЬ**[2] *гл.* расчасаць[2].

**РАСШАВЯЛІ́ЦЦА**, -вялю́ся, -ве́лішся, -ве́ліцца; *зак.* Тое, што і *разварушыцца.* ‖ *незак.* **расшаве́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**РАСШАВЯЛІ́ЦЬ**, -вялю́, -ве́ліш, -ве́ліць; -ве́лены; *зак., каго-што.* **1.** Шавелячы, разварушыць, вывесці са спакойнага стану. *Р. мурашнік.* **2.** *перан.* Абудзіць да дзейнасці. *Р. слухачоў.* ‖ *незак.* **расшаве́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСШАЛО́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак., што* (разм.). Зразумець, разгадаць. *Ён ледзь расшалопаў, што ад яго патрабуюць.*

**РАСША́РКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** Раскланяцца, шаркаючы нагой. *Пачціва расшаркаўся.* **2.** *перан.* Выказаць залішне лісліўыя адносіны да каго-н. *Р. перад начальствам.* ‖ *незак.* **расша́рквацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **расша́рკванне**, -я, *н.*

**РАСША́СТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Разадраць. *Р. сукенку.*

**РАСШКУМАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). Разадраць, разарваць на дробныя кавалкі. *Р. сшытак.*

**РАСШМАРГНУ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* **1.** Рассунуцца, разысціся ў бакі. *Фіранка на акне расшмаргнулася.* **2.** Развязацца (пра тое, што было завязана). *Шнуркі расшмаргнуліся.* ‖ *незак.* **расшмо́ргвацца**, -аецца.

**РАСШМАРГНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што.* **1.** Рассунуць, развесці ў бакі што-н. зашмаргнутае. *Р. занавескі.* **2.** Развязаць завязанае пятлёй. *Р. шнурок.* ‖ *незак.* **расшмо́ргваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСШНУРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Развязацца (пра зашнураванае). *Чаравікі расшнураваліся.* **2.** Развязаць, паслабіць на сабе шнуроўку. ‖ *незак.* **расшнуро́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **расшнуро́ўванне**, -я, *н.*

**РАСШНУРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Развязаць зашнураванае. *Р. чаравікі.* ‖ *незак.* **расшнуро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расшнуро́ўванне**, -я, *н. і* **расшнуро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**РАСШПІЛІ́ЦЦА**, -пілю́ся, -пі́лішся, -пі́ліцца; *зак.* **1.** Расшпіліць на сабе адзенне. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вызваліцца ад засцежкі. *Каўнер расшпіліўся.* ‖ *незак.* **расшпі́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **расшпіля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**РАСШПІЛІ́ЦЬ**, -пілю́, -пі́ліш, -пі́ліць; -пі́лены; *зак., што.* Раз'яднаць што-н. зашпіленае. *Р. паліто. Р. гузікі.* ‖ *незак.* **расшпі́льваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **расшпіля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **расшпі́льванне**, -я, *н.*

**РАСШПУРЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак., каго-што.* Шпурляючы, раскідаць. *Р. цацкі па кутках.*

**РАСШРУБАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -бу́ецца; *зак.* Аслабнуць у змацаваннях, расхістацца (пра сашрубаванае). ‖ *незак.* **расшрубо́ўвацца**, -аецца.

**РАСШРУБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што.* Раз'яднаць што-н. сашрубаванае. *Р. замок.* ‖ *незак.* **расшрубо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСШТУ́РХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *каго-што.* Адштурхнуць усіх, многіх у розныя бакі. *Р. натоўп.* **2.** *каго (што).* Штурхаючы, разбудзіць; раскатурхаць. *Р. соннае дзіця.* ‖ *незак.* **расшту́рхваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расшту́рхванне**, -я, *н.*

**РАСШТУ́РХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак., каго-што* (разм.). Штурхнуўшы, разняць каго-н. *Р. задзірыстых хлапчукоў.* ‖ *незак.* **расштурхо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСШУКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* Знайсціся пасля пошукаў. ‖ *незак.* **расшу́квацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **расшука́нне**, -я, *н.*

**РАСШУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Знайсці пасля пошукаў. *Р. сваякоў. Р. патрэбную кнігу.* ‖ *незак.* **расшу́кваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расшу́кванне**, -я, *н.*

**РАСШУМЕ́ЦЦА**, -млю́ся, -мі́шся, -мі́цца; -мі́мся, -міце́ся, -мя́цца; -мі́ся; *зак.* (разм.). **1.** Пачаць моцна шумець. *Лес расшумеўся.* **2.** Пачаць моцна крычаць, спрачацца. *Дзеці расшумеліся.*

**РАСШЧАБЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* **1.** *гл.* расшчабяніць. **2.** Дробны шчэбень. *Засыпаць брук расшчабёнкай.*

**РАСШЧАБЯНІ́ЦЬ**, -бяню́, -бе́ніш, -бе́ніць; -бе́нены; *зак., што* (спец.). Раздрабніць, ператварыць у шчэбень. *Р. камень.* ‖ *незак.* **расшчабе́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расшчабёнка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж. і* **расшчабе́ньванне**, -я, *н.*

**РАСШЧАБЯТА́ЦЦА**, -бячу́ся, -бе́чашся, -бе́чацца; -бячы́ся; *зак.* **1.** Пачаць моцна шчабятаць (пра птушак). *Ластаўкі расшчабяталіся.* **2.** *перан.* Пачаць многа, ахвотна гаварыць, расказваць. *Дзеці расшчабяталіся.*

**РАСШЧАДРА́ЦЦА** *гл.* расшчодрыцца.

**РАСШЧАДРЫ́ЦЦА** *гл.* расшчодрыцца.

**РАСШЧАМІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шчэ́міцца; *зак.* Разняцца, расшчапіцца (пра што-н. сашчэмленае). *Пальцы расшчаміліся.* ‖ *незак.* **расшчамля́цца**, -я́ецца *і* **расшчэ́млівацца**, -аецца.

**РАСШЧАМІ́ЦЬ**, -шчамлю́, -шчэ́міш, -шчэ́міць; -шчэ́млены; *зак., што.* Разняць, расшчапіць сашчэмленае. *Р. зубы.* ‖ *незак.* **расшчамля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **расшчэ́млівацъ**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСШЧАПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шчэ́піцца; *зак.* **1.** Раскалоцца, раздзяліцца на часткі. *Палена лёгка расшчапілася.* **2.** Разняцца, раз'яднацца. *Пальцы расшчапіліся.* **3.** Раздрабіцца, распасціся на часткі (спец.). *Валакно расшчапілася.* **4.** Раскласціся на часткі ў выніку хімічнай рэакцыі (спец.). *Эфір расшчапіўся.* **5.** Распасціся (пра атамы; спец.). ‖ *незак.* **расшчапля́цца**, -я́ецца *і* **расшчэ́плівацца**, -аецца. ‖ *наз.* **расшчапле́нне**, -я, *н.*

**РАСШЧАПІ́ЦЬ**, -шчаплю́, -шчэ́піш, -шчэ́піць; -шчэ́плены; *зак., што.* **1.** Расколоць, раздзяліць на часткі. *Р. палена.* **2.** Разняць, раз'яднаць. *Р. пальцы.* **3.** Раздрабіць, заставіць распасціся на часткі (спец.). *Р. валокны.* **4.** Раскласці на часткі ў выніку хімічнай рэакцыі (спец.). *Р. эфір.* **5.** Прымусіць распасціся (атам; спец.). *Р. атам урану.* ‖ *незак.* **расшчапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **расшчэ́плівацъ**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расшчапле́нне**, -я, *н.* (да 3—5 знач.).

**РАСШЧО́ДРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца *і* **РАСШЧАДРЫ́ЦЦА**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; *зак.* Праявіць шчодрасць, стаць шчодрым. ‖ *незак.* **расшчо́дрывацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **расшчадра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**РАСШЧЭ́П**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Месца, дзе што-н. расшчэплена, разрэзана ўдоўж. *Р. у дошцы.*

**РАСШЧЭ́ПІНА**, -ы, *мн.* -ы, -пін, *ж.* Шчыліна, расколіна ў чым-н. *Р. ў дошцы.*

**РАСШЫРА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Прыстасаванне, прылада для расшырэння чаго-н.

**РАСШЫ́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -рыцца; *зак.* **1.** Стаць больш шырокім, пашырыцца. *Пляцоўка расшырылася.* **2.** Павялічыцца колькасна, у аб'ёме; пашырыцца. *Асартымент прадуктаў расшырыўся.* **3.** Стаць больш шырокім па змесце, паглыбіцца. *Тэматыка дакладаў расшырылася.* ‖ *незак.* **расшыра́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **расшырэ́нне**, -я, *н.*

**РАСШЫ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* **1.** Зрабіць больш шырокім, пашырыць. *Р. дарогу.* **2.** Павялічыць колькасна, у аб'ёме; пашырыць. *Р. вытворчасць.* **3.** Зрабіць больш шырокім па змесце, узмацніць; пашырыць. *Р. кругагляд. Р. правы дэпутатаў. Р. кола інтарэсаў.* ‖ *незак.* **расшыра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **расшырэ́нне**, -я, *н.*

**РАСШЫЎНЫ́**, -а́я, -о́е. Расшыты ўзорамі, упрыгожаны вышыўкай. *Р. ручнік.*

**РАСШЫФРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., што.* Разабраць, прачытаць зашыфраванае. *Р. радыёграму.* ‖ *незак.* **расшыфро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **расшыфро́ўванне**, -я, *н. і* **расшыфро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**РАСШЫФРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст, які займаецца расшыфроўкай. ‖ *ж.* **расшыфро́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**РАСШЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -шы́ецца; *зак.* Распароцца (пра што-н. сшытае). *Накідка расшылася.* ‖ *незак.* **расшыва́цца**, -а́ецца.

**РАСШЫ́ЦЬ**, -шы́ю, -шы́еш, -шы́е; -шы́ты; *зак., што.* **1.** Распароць сшытае. *Р. кнігу.* **2.** Упрыгожыць узорным шыццём, вышыўкай. *Р. сурвэтку гладдзю.* ‖ *незак.* **расшыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **расшыва́нне**, -я, *н. і* **расшы́ўка**, -і, *ДМ* -шы́ўцы, *ж.*

**РАСШЭ́ЙГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Растраціць. *Р. грошы.* ‖ *незак.* **расшэ́йгваць**, -аю, -аеш, -ае.

**РАСЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Травяністая балотная насякомаедная расліна. ‖ *прым.* **рася́нкавы**, -ая, -ае. *Сямейства расянкавых* (наз.).

*ўжыв.*). Віднецца (пра што-н. рудое). ‖ *зак.* **зрудзéць**, -éю, -éеш, -éе (да 1 знач.) *і* **парудзéць**, -éю, -éеш, -éе (да 1 знач.).

**РУДНІ́К**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* Горнапрамысловае прадпрыемства для здабычы руды, карысных выкапняў. *Уранавыяруднікі.* ‖ *прым.* **руднікóвы**, -ая, -ае. *Рудніковае мацаванне.*

**РУ́ДНЫ** *гл.* руда.

**РУДЫ́**, -áя, -óе. Рыжа-карычневы. *Рудая вавёрка.*

**РУДЫМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Недаразвіты, астаткавы орган арганізма, які страціў сваё першапачатковае значэнне ў працэсе эвалюцыйнага развіцця. **2.** *перан.* Астатак, рэшткі якой-н. з'явы (кніжн.). ‖ *прым.* **рудыментáрны**, -ая, -ае.

**РУДЫМЕНТА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рудымент. **2.** Які знаходзіцца ў зародкавым стане (кніжн.). ‖ *наз.* **рудыментáрнасць**, -і, *ж.*

**РУ́ЖА**, -ы, *мн.* -ы, руж, *ж.* **1.** Расліна з прыгожымі шырокапялёсткавымі пахучымі кветкамі і сцяблом, звычайна пакрытым шыпамі. *Усеяць чый-н. шлях ружамі* (перан.: зрабіць чыё-н. жыццё лёгкім, шчаслівым). **2.** Архітэктурнае або ювелірнае ўпрыгожанне, якое схематычна перадае форму кветкі гэтай расліны. ○ **Ружа вятроў** (спец.) — 1) графічнае адлюстраванне паўтаральнасці напрамку вятроў у пэўным месцы; 2) вятры, якія дзьмуць адначасова ў розных напрамках. ‖ *памянш.* **рýжачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **рýжавы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Р. алей. Сямейства ружавых* (наз.).

**РУЖАВА́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* Прадпрыемства, якое перапрацоўвае пялёсткі руж у ружавы алей.

**РУЖАВЕ́ЦЬ**, -éю, -éеш, -éе; *незак.* **1.** Станавіцца ружовым. *Шчокі ружавеюць на марозе.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Віднецца (пра што-н. ружовае). ‖ *зак.* **паружавéць**, -éю, -éеш, -éе (да 1 знач.).

**РУЖАКВЕ́ТНЫЯ**, -ых (спец.). Сямейства двухдольных раслін, да якога адносяцца яблыня, груша, вішня, шыпшына, ажына, маліна, глог, ружа і інш.

**РУЖА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* У некаторых хрысціян: шнурок з пацеркамі або вузельчыкамі для адлічвання прачытаных малітваў або паклонаў у час малітвы.

**РУЖЖО́**, -á, *мн.* рýжжы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) ружжы́, рýжжаў, *н.* Ручная агнястрэльная зброя з доўгім ненаразным ствалом. *Паляўнічае р. Процітанкавае р. Быць пад ружжом* (перан.: быць на ваенным становішчы, у стане баявой гатоўнасці — пра армію). *Ур.!* (каманда стаць у строй з вінтоўкамі). *Паставіць пад р.* (прызваць на ваенную службу). ‖ *памянш.* **ружэ́йца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* ‖ *прым.* **ружэ́йны**, -ая, -ае.

**РУЖОВА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: з ружовым адценнем, напр.: *ружова-пурпуровы, ружова-фіялетавы, ружова-чырвоны.*

**РУЖО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Светла-чырвоны. *Р. колер. Ружовыя шчокі* (румяныя). *Ружовая кофта.* **2.** *перан.* Нічым не азмрочаны, радасны, светлы (разм.). *Ружовыя мары.* **3.** Ружовае дрэва — драўніна некаторых трапічных дрэў, афарбаваная ў ружовы колер. ◊ **Праз ружовыя акуляры глядзець** *на каго-што* (неадабр.) — уяўляць усё ў прыемным выглядзе, глядзець на ўсё жыццярадасна, не заўважаючы дрэннага. **У ружовым святле бачыць** *каго-што* — тое, што і праз ружовыя акуляры глядзець. ‖ *наз.* **ружóвасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**РУЖО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Гадавальнік, дзе вырошчваюцца ружы, а таксама кветнік з руж.

**РУЖЭ́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Майстар, які вырабляе ружжы, рабочы ружэйнага цэха.

**РУІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, руі́н, *ж.* **1.** звычайна *мн.* Рэшткі разбуранага збудавання, паселішча. **2.** *перан.* Стары, зусім нямоглы чалавек (разм.). *Стаць руінай.* ‖ *прым.* **руі́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**РУЙНАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нýецца; *незак.* Ператварацца ў руіны (у 1 знач.), разбурацца. *Замак руйнуецца. Руйнаваліся старадаўнія звычаі* (перан.: знішчаліся).

**РУЙНАВА́ЦЬ**, -нýю, -нýеш, -нýе; -нýй; *незак., што.* Ператвараць у руіны (у 1 знач.), разбураць. *Вораг руйнаваў гарады.* ‖ *наз.* **руйнавáнне**, -я, *н.*

**РУКА́**, -і́, *ДМ* руцэ́, *мн.* рýкі *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) рукі́, рук, *ж.* **1.** Верхняя канечнасць чалавека ад пляча да кончыкаў пальцаў, а таксама ад запясця да кончыкаў пальцаў. *Правая р. Доўгія рукі. Выпасці з рук. Паціснуць руку каму-н.* (у знак прывітання або ўдзячнасці). *Павітацца за руку* (пра поціск рукі). *Рукі не падаваць каму-н.* (у знак пагарды не абменьвацца рукапацісканнем). *Весці за руку* (трымаючы за руку). *Узяцца (пабрацца) за рукі. Пад рукі весці* (падтрымліваючы з двух бакоў пад сагнутыя локці). *Пад руку ісці з кім-н.* (апіраючыся на чыю-н. сагнутую ў локці руку). *На рукі ўзяць каго-н.* (пасадзіць да сябе на калені ці, падняўшы, прытуліць да сябе; звычайна пра дзіця). *На руках трымаць каго-н.* (перан.: узяўшы на рукі). *На руках насіць каго-н.* (таксама перан.: надта песціць, балаваць; разм.). *Рукі апусціліся ў каго-н.* (таксама перан.: прапала жаданне рабіць што-н., быць актыўным). *У рукі аддаць каму-н.* (самому, асабіста). *На руку надзець. Не па руцэ рукавіцы* (вялікія або малыя). *Залатыя рукі ў каго-н.* (перан.: умелыя; разм.). *Рукам волі не давай* (не біся, прымі рукі; разм.). *З рук выпусціць* (таксама перан.: упусціць што-н., не выкарыстаць што-н. выгаднае; разм.). *Рукі грэць на чым-н.* (таксама перан.: нажывацца несумленным спосабам; разм., неадабр.). *Рукі прэч ад каго-, чаго-н.!* (таксама перан.: патрабаванне не ўмешвацца ў чые-н. справы). *Р. не задрыжыць у каго-н.* (таксама перан.: хопіць рашучасці зрабіць што-н. дрэннае). *За руку схапіць каго-н.* (таксама перан.: злавіць на месцы злачынства; разм.). *Цвёрдая р. ў каго-н.* (перан.: упэўнены ў сабе, строгі). *У руках у каго-н.* (таксама перан.: 1) маецца, ёсць. *Доказ у руках у следчага;* 2) у поўным падначаленні, залежнасці. *Уся група ў яе ў руках;* 3) злоўлены. *Злачынец у руках у міліцыі*). *У руках* або *ў сваіх руках трымаць, мець што-н.* (таксама перан.: трымаць у сваёй уладзе, валодаючы чым-н.). *У руках трымаць каго-н.* (таксама перан.: у строгасці; разм.). *Руку прылажыць* (таксама перан.: паставіць свой подпіс; уст.). *У рукі* або *ў свае рукі захапіць, узяць што-н.* (таксама перан.: узяць сабе або пад свой кантроль, сваё кіраўніцтва). *У рукі ўзяць каго-н.* (таксама перан.: зрабіць больш дысцыплінаваным, прымусіць падпарадкавацца; разм.). *У нашых (маіх, яго) руках* (таксама перан.: у нашых магчымасцях, наша права; разм.). *Усё валіцца з рук* (перан.: за што ні вазьміся, нічога не атрымліваецца, ні на што няма сіл; разм.). *У добрыя, дрэнныя, чужыя рукі аддаць, трапіць* або *ў добрых, дрэнных, чужых руках быць, знаходзіцца* (перан.: да добрых, дрэнных, чужых людзей або ў добрых, дрэнных, чужых людзей; разм.). *У адны рукі прадаць, адпусціць* (перан.: аднаму чалавеку; разм.). *У рукі само (сам) ідзе* (перан.: аказваецца лёгкадаступным, дасягальным; разм.). *У чатыры рукі іграць* (іграць на раялі ўдваіх). *Голымі рукамі не возьмеш каго-н.* (перан.: пра таго, хто хітры, выкрутлівы; разм.). *З рук у рукі перадаць каго-, што-н.* (перан.: непасрэдна перадаць каму-н.). *З рук у рукі пераходзіць* (перан.: пераходзіць у валоданне то да аднаго, то да другога папераменна). *Пад гарачую руку трапіць* (у сярдзітую хвіліну, калі хто-н. раздражнёны, раззлаваны; разм.). *Пад руку папасці, трапіць* (перан.: 1) выпадкова трапіцца. *Пад руку трапіла цікавая кніжка;* 2) тое, што і пад гарачую руку трапіць; разм.). *Пад рукой* (таксама перан.: у непасрэднай блізкасці, так, што зручна карыстацца; разм.). *Пад руку гаварыць каму-н.* (перан.: гаварыць, перашкаджаючы таму, хто заняты справай; разм.). *Па руках біць* або *ўдарыць* (таксама перан.: заключыць здзелку, дамовіцца; разм.). *Па руках даць каму-н.* (таксама перан.: даць каму-н. пострах; разм.). *На руках памерці чыіх-н.* або *ў каго-н.* (перан.: у прысутнасці таго, хто быў побач, блізка). *Падаць, працягнуць руку дапамогі* (перан.: дапамагчы; высок.). *Падняць руку на каго-н.* (перан.: намерыцца ўдарыць або забіць каго-н.). *Рукамі і нагамі адбівацца, адпіхвацца* (таксама перан.: катэгарычна адмаўляцца; разм.). *З рукамі і нагамі* (перан.: 1) ахвотна, з прыемнасцю; разм. *З рукамі і нагамі возьмуць такога працаўніка;* 2) увесь, цалкам. *Выдаць сябе з рукамі і нагамі;* разм.). *Рука ў руку ісці* (узяўшыся за рукі; таксама пе-

ран.: дзейнічаць сумесна, дружна). *Рукой не дастаць каго-н.* (таксама перан.: пра таго, хто дасягнуў высокага становішча, а таксама пра таго, хто далёка; разм.). *Руку налажыць, накласці на што-н.* (перан.: завалодаць чым-н.; разм., неадабр.). *Р. не падымаецца ў каго на каго-, што-н.* (перан.: не хапае смеласці, рашучасці зрабіць што-н.; разм.). *Рукі развязаць каму-н.* (таксама перан.: даць магчымасць свабодна дзейнічаць; разм.). *Рукі атрэсці* (перан.: катэгарычна адмовіцца ад каго-, чаго-н.; разм.). *Рукі свярбяць у каго-н.* (таксама перан.: 1) *на каго*, хочацца пабіцца; разм.; 2) *на што* і *з інф.*, хочацца заняцца якой-н. справай; разм. *Рукі свярбяць на працу* або *працаваць). Прайсці праз чые-н. рукі* (перан.: быць прадметам чыёй-н. дзейнасці, уздзеяння, увагі). *Р. руку мые* (прыказка пра тых, хто пакрывае дрэнныя ўчынкі адзін аднаго). *Чыстымі рукамі рабіць што-н.* (таксама перан.: не крывячы душой, з чыстым сумленнем). **2.** *перан.* Манера пісьма, почырк. *Увесь тэкст напісаны адной рукой.* **3.** *перан.* Старана, бок, напрамак (разм.). *Па правай руцэ цягнуўся лес* (справа). **4.** *перан.* Пра чалавека, які можа пасадзейнічаць, аказаць пратэкцыю (разм.). *Свая р. дзе-н. у каго-н. Моцная р.* ◊ **Ад рукі напісаць** — ручкай, карандашом, пяром, у адрозненне ад машынапіснага, друкаванага тэксту. **Воля рук** (кніжн.) — свабода дзеяння. **Да рук прыбраць** *каго-што* — 1) прысвоіць або завалодаць, захапіць (разм., неадабр.). *Прыбраць да рук чые-н. рэчы;* 2) поўнасцю падпарадкаваць сабе каго-н. (разм.). **З другіх (трэціх) рук** (даведацца, атрымаць звесткі) — не непасрэдна ад каго-н. **З першых рук** (даведацца, атрымаць звесткі) — з першакрыніцы, непасрэдна ад каго-н. **З рук вон** (разм.) — вельмі дрэнна, нікуды не варта. **З рук збыць** *каго-што* (разм.) — пазбавіцца ад каго-, чаго-н. **З рук сысці** (разм.) — застацца беспакараным. *Правіннасць сышла з рук. З чужых рук глядзець* (разм., неадабр.) — быць у залежнасці ад іншых. **На руках** — 1) быць, мецца ў наяўнасці. *Даведка на руках;* 2) *у каго*, на чыім-н. утрыманні, пад апекай каго-н. *У мяне на руках вялікая сям'я.* **На рукі выдаць** *што каму* — уручыць. **На руку** *каму што* (разм.) — выгадна каму-н., супадае з чыімі-н. інтарэсамі. **На руку нячысты** (разм.) — схільны да крадзяжу, махлярства. **На ўсе рукі майстар** (разм.) — усё ўмее рабіць. **Не з рукі** (разм.) — 1) *каму*, пра нязручнае становішча рукі ў момант якога-н. занятку. *Пісаць лежачы — не з рукі;* 2) не варта, не падыходзіць. **Не пакладаючы рук** (разм.) — старанна, не перастаючы. **Па руках пайсці (хадзіць)** (разм.) — пераходзіць ад аднаго да другога. **Прасіць** *чыёй* **рукі** — зрабіць каму-н. прапанову выйсці замуж за сябе. **Рукі не дайшлі (не даходзяць)** *да чаго* (разм.) — не паспявае хто-н. зрабіць што-н. з-за вялікай колькасці іншых спраў. *Рукі не даходзяць навесці парадак у кладоўцы.* **Рукой падаць** (разм.) — вельмі блізка. *Да лесу рукой падаць.* **Руку (і сэрца) прапанаваць** *каму* (уст.) — тое, што і прасіць чыёй-н. рукі. **Сон у руку** (разм.) — пра сон, які спраўдзіўся. **Трымаць руку** *чыю* (уст. *і* разм.) — быць чыім-н. прыхільнікам; падтрымліваць каго-н. у чым-н. **Узяць сябе ў рукі** — прымусіць сябе супакоіцца. **Як рукой зняло** *што* (разм.) — поўнасцю прайшло (звычайна пра боль). ‖ *памянш.* **ру́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). *За ручку вадзіць каго-н.* (таксама перан.: залішне апекаваць, пазбаўляць магчымасці дзейнічаць самастойна; неадабр.). ◊ **Да ручкі дайсці (дабіцца)** (разм.) — да галечы ці да зусім бязвыхаднага становішча. ‖ *памянш.* **ру́чачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *павел.* **ручы́шча**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **ручны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**РУКАВІ́ЦЫ**, -віц, *адз.* рукаві́ца, -ы, *ж.* Род пальчатак з аддзяленнем толькі для вялікага пальца. *Кажуховыя р. Брызентавыя р.* (рабочыя). ◊ **Трымаць у вожыкавых рукавіцах** *каго* (разм.) — абыходзіцца з кім-н. строга, сурова. ‖ *памянш.* **рукаві́чкі**, -чак, *адз.* рукаві́чка, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* ‖ *прым.* **рукаві́чны**, -ая, -ае.

**РУКАДЗЕ́ЛЛЕ**, -я, *н.* **1.** Ручная праца (пераважна пра шыццё, вязанне, вышыўку). **2.** Рэч, якая адмыслова выканана рукамі (пераважна пра вышытае, звязанае). *Выстаўка рукадзелля.* ‖ *прым.* **рукадзе́льны**, -ая, -ае.

**РУКАДЗЕ́ЛЬНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* (разм.). Жанчына — майстар рукадзелля.

**РУКАДЗЕ́ЛЬНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Займацца рукадзеллем.

**РУКАКРЫ́ЛЫЯ**, -ых, *адз.* -ае, -ага, *н.* (спец.). Атрад млекакормячых з прыстасаванымі для палёту пярэднімі канечнасцямі (лятучыя мышы і крыланы).

**РУКАМЫ́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Невялікі вісячы ўмывальнік.

**РУКАПАЦІСКА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Пацісканне адзін аднаму правай рукі ў знак прывітання, падзякі. *Сяброўскае р. Абмяняцца рукапацісканнямі.*

**РУКАПА́ШНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пра бой, сутычку: які ажыццяўляецца халоднай зброяй, штыкамі, прыкладамі. *Рукапашная сутычка.* **2.** *у знач. наз.* **рукапа́шная**, -ай, *ж.* Такая сутычка, бой. *Пайсці ў рукапашную.*

**РУ́КАПІС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Арыгінал або копія тэксту, напісанага ад рукі ці аддрукаванага на пішучай машынцы. *Рукапісы пісьменніка. Аддаць р. у набор.* **2.** Помнік пісьменнасці, які адносіцца пераважна да часу ўзнікнення кнігадрукавання. *Вывучэнне старажытных рукапісаў.* ‖ *прым.* **рукапі́сны**, -ая, -ае. *Р. тэкст. Р. аддзел бібліятэкі.*

**РУКАПРЫКЛА́ДСТВА**, -а, *н.* (разм.). Нанясенне пабояў. *Справа дайшла да рукапрыкладства.*

**РУКА́СТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** З доўгімі, вялікімі рукамі. *Р. дзяцюк.* **2.** *перан.* Умелы, дзелавы, энергічны. *Р. гаспадарнік.* ‖ *наз.* **рука́стасць**, -і, *ж.*

**РУКА́Ў**, -кава́, *мн.* -кавы́, -каво́ў, *м.* **1.** Частка адзення, якая пакрывае руку. *Доўгія рукавы* (да кісці). *Кароткія рукавы* (якія закрываюць плячо). **2.** Адгалінаванне ад галоўнага рэчышча ракі. *Р. Нёмана.* **3.** Шланг для падачы вадкасцей або сыпучых цел, газаў. *Пажарны р. Р. млына. Усмоктвальны р.* ‖ *памянш.* **рука́ўчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **рука́ўны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**РУКА́ЎЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* рукаў. **2.** звычайна *мн.* Род прышыўной манжэты. *Сукенка з белымі рукаўчыкамі.*

**РУКЗА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Заплечны рэчавы мяшок з кішэнямі. *Паходны р.* ‖ *прым.* **рукза́чны**, -ая, -ае.

**РУЛА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, рула́д, *ж.* Раскацісты і віртуозны пасаж[2] у спевах — выкананая ў хуткім тэмпе частка мелодыі. *Р. у партыі каларатурнага сапрана. Салаўіныя рулады* (перан.).

**РУЛЕ́Т**, -у, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Ежа з сечанага мяса ці бульбы з якой-н. начынкай, запечаная ў выглядзе батона, а таксама кандытарскі выраб з начынкай. *Мясны р. Р. з макам.* **2.** Кумпяк, з якога вынята костка і якому нададзена круглая форма. ‖ *прым.* **руле́тны**, -ая, -ае.

**РУЛЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Інструмент для вымярэння даўжыні — лента з дзяленнямі, якая накручваецца на валік. **2.** Прыстасаванне для азартнай гульні ў выглядзе рухомага круга з нумараванымі ямкамі, па якіх коціцца шарык, а таксама сама гэта гульня. *Гуляць у рулетку.* ‖ *прым.* **руле́тачны**, -ая, -ае.

**РУЛІ́**, -ёў (разм.). Страва, прыгатаваная з хлеба, накрышанага ў малако ці ў падсоленую ваду з алеем.

**РУЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; *незак.* Тое, што і *руляваць.* ‖ *зак.* **вы́руліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены. ‖ *наз.* **руле́нне**, -я, *н.*

**РУЛО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Трубка гнуткага матэрыялу, згорнутага для захоўвання. *Папера, цырата, толь у рулонах. Р. лінолеуму.* ‖ *прым.* **руло́нны**, -ая, -ае.

**РУЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Прыстасаванне для кіравання рухам судна, самалёта, аўтамабіля. *Р. аўтамабіля. Паветраны р.* (у лятальнага апарата). *Сядзець, стаяць за рулём. Стаяць каля руля* (таксама перан.: кіраваць; кніжн.). ‖ *прым.* **рулявы́**, -а́я, -о́е. *Рулявое кола. Рулявое кіраванне.*

**РУ́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Тое, што і *дула. Р. вінтоўкі.* ‖ *прым.* **ру́льны**, -ая, -ае.

**РУЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; *незак.* **1.** Кіраваць рулём; кіраваць рухам чаго-н. (лодкі, санак і пад.). *Р. да ангара.* **2.** Пра самалёт: коцячыся па зямлі, накіроўвацца куды-н. ‖ *зак.* **вы́руляваць**, -люю, -люеш, -люе; -луй; -ляваны. ‖ *наз.* **руля**-**ва́нне**, -я, *н.*

**РУЛЯВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* руль. **2.** *у знач. наз.* **рулявы́**, -о́га, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.* На суд-

не: чалавек, які кіруе рулём, а таксама спецыяліст, які рэгулюе кіраванне рулём. *Гэты чалавек — наш р.* (перан.: вядзе нас наперад). ‖ *ж.* **рулявáя**, -óй, *мн.* -ы́я, -ы́х.

**РУМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Месца на беразе ракі, куды звозяць бярвенне для сплаву і дзе вяжуць плыты. *Вывезці лес на р.*

**РУМБ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Дзяленне на крузе компаса, якое адпавядае $^1/_{32}$ частцы акружнасці гарызонту. ‖ *прым.* **рýмбавы**, -ая, -ае.

**РУ́МБА**, -ы, *ж.* Танец мексіканскага паходжання хуткага тэмпу, чатырохдольнага памеру, а таксама музыка да гэтага танца. ‖ *прым.* **рýмбавы**, -ая, -ае.

**РУ́МЗА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -е, -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, румз *і* -аў (разм., неадабр.). Чалавек, які многа і часта плача; плакса.

**РУ́МЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм., неадабр.). Часта і надакучліва плакаць. ‖ *наз.* **рýмзанне**, -я, *н.*

**РУМЫ́НЫ**, -аў, *адз.* -мы́н, -а, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Румыніі. ‖ *ж.* **румы́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **румы́нскі**, -ая, -ае.

**РУМЯ́НАСЦЬ** *гл.* румяны[1].

**РУМЯ́НЕЦ**, -нцу, *м.* Ружовы ці яркачырвоны колер твару, шчок. *Здаровы р.*

**РУМЯНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Станавіцца румяным, чырванець. *Румянеюць шчокі.*

**РУМЯ́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *незак.* **1.** *гл.* румяніць. **2.** Пакрывацца румянцам. *Шчокі румяняцца на марозе.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прапякаючыся, пакрывацца залаціста-карычневай скарынкай. *Пірог пачаў р.* ‖ *зак.* **зарумя́ніцца**, -нюся, -нішся, -ніцца.

**РУМЯ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *незак.* **1.** *каго-што.* Фарбаваць румянамі. *Р. сабе твар.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пакрываць румянцам. *Мароз румяніць шчокі. Зара румяніць неба.* ‖ *зак.* **нарумя́ніць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены (да 1 знач.) *і* **зарумя́ніць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены (да 2 знач.). ‖ *звар.* **румя́ніцца**, -нюся, -нішся, -ніцца (да 1 знач.); *зак.* **нарумя́ніцца**, -нюся, -нішся, -ніцца.

**РУМЯ́НЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Пакрыты румянцам. *Р. твар.* **2.** *перан.* Ярка-чырвоны, ружовы. *Р. небасхіл.* **3.** Пра печыва: з паверхняй залаціста-карычневага адцення. *Румяныя пампушкі. Румяная скарынка.* ‖ *наз.* **румя́насць**, -і, *ж.*

**РУМЯ́НЫ**[2], -аў. Ружовая ці чырвоная касметычная фарба для твару. *Р. і бялілы.*

**РУНДУ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Металічны сундук у карабельным памяшканні. ‖ *прым.* **рундýчны**, -ая, -ае.

**РУНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *незак.* Узыходзячы, зелянець (звычайна пра азімыя пасевы). *Рунее жыта.*

**РУНÓ**, -á, *н.* (спец.). Шэрсць авечкі. *Тонкае р. Залатое р.* (перан.: пра багацце; кніжн. [паводле старажытнага міфа пра герояў, якія ажыццявілі падарожжа ў Калхіду ў пошуках залатога руна чароўнага барана]). ‖ *прым.* **рýнны**, -ая, -ае.

**РУ́НЫ**, рун, *адз.* рýна, -ы, *ж.* **1.** Старажытныя пісьмёны пераважна скандынаваў, якія захаваліся ў надпісах на камянях, зброі і іншых прадметах. **2.** Старадаўнія народныя эпічныя песні ў карэлаў, фінаў і эстонцаў. ‖ *прым.* **руні́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Рунічнае пісьмо.*

**РУНЬ**, -і, *ж.* Усходы, пасевы азімых культур. *Жытнёвая р.* ‖ *прым.* **рýневы**, -ая, -ае.

**РУ́ПАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Труба канічнай формы, якая служыць для ўзмацнення гуку. *Гаварыць у р.* **2.** Рэпрадуктар у выглядзе такой трубы. *З рупара даносілася музыка.* **3.** *перан., чаго.* Распаўсюджвальнік чыіх-н. ідэй, поглядаў (кніжн.). *Р. чужых ідэй.* ‖ *прым.* **рýпарны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**РУ́ПЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -піць; *незак.* **1.** *безас., каму, з інф.* і *без дап.* Пра неадольнае жаданне рабіць што-н.; хацецца; карцець. *Мне рупіла хутчэй пра ўсё даведацца.* **2.** Турбаваць, не даваць спакою. *Яго ўвесь час рупіць сям'я і гаспадарка.*

**РУ́ПІЦЦА**, -плюся, -пішся, -піцца; *незак.* **1.** Клапаціцца, непакоіцца пра каго-, што-н. *Р. пра сям'ю.* **2.** *безас.* Хацецца. *Мне ўсё рупіцца паехаць туды.* ‖ *зак.* **парýпіцца**, -плюся, -пішся, -піцца.

**РУ́ПІЯ**, -і, *мн.* -і, -пій, *ж.* Грашовая адзінка ў Індыі, Пакістане і некаторых іншых краінах. ‖ *прым.* **рýпіевы**, -ая, -ае.

**РУПЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які імкнецца зрабіць як мага больш і лепш; дбайны; клапатлівы, старанны. *Р. чалавек. Руплівая праца.* ‖ *наз.* **руплі́васць**, -і, *ж.*

**РУ́ПНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *руплівы. Р. гаспадар.* ‖ *наз.* **рýпнасць**, -і, *ж.*

**РУСА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: з русым, напр.: *русабароды, русавалосы, русакосы.*

**РУСАВАЛÓСЫ**, -ая, -ае. З русымі валасамі. *Р. хлопец.* ‖ *наз.* **русавалóсасць**, -і, *ж.*

**РУСА́ВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *русявы.* ‖ *наз.* **русáвасць**, -і, *ж.*

**РУСА́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Шэры заяц, які захоўвае аднолькавую афарбоўку зімой і летам. ‖ *прым.* **русакóвы**, -ая, -ае.

**РУСА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* У народных павер'ях — істота ў выглядзе аголенай жанчыны з доўгімі распушчанымі валасамі, якая жыве ў вадзе або жыце. ‖ *памянш.-ласк.* **русáлачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **русáлчын**, -а.

**РУСІ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Слова ці моўны зварот, запазычаныя якой-н. мовай з рускай або ўтвораныя па рускамоўным узоры.

**РУСІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вучоны — спецыяліст па русістыцы. ‖ *ж.* **русі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **русі́сцкі**, -ая, -ае.

**РУСІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Сукупнасць навук, якія вывучаюць рускую мову, літаратуру і культуру.

**РУ́СКІ**[1], -ага, *м.* Нацыянальны танец рускіх, а таксама музыка да гэтага танца. *Танцаваць рускага.*

**РУ́СКІ**[2] *гл.* рускія.

**РУ́СКІЯ**, -іх, *адз.* -і, -ага, *м.* Усходнеславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Расіі. ‖ *ж.* **рýская**, -ай, *мн.* -ія, -іх. ‖ *прым.* **рýскі**, -ая, -ае.

**РУ́СЫ**, -ая, -ае. Светла-карычневы (пра валасы); са светла-карычневымі валасамі. *Русая барада. Русая дзяўчына.*

**РУСЯ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Блізкі да русага, светла-русы, са светла-русымі валасамі. *Русявыя косы. Р. хлопец.* ‖ *наз.* **русявасць**, -і, *ж.*

**РУХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** У філасофіі — форма існавання матэрыі, бесперапынны працэс развіцця матэрыяльнага свету. *Няма матэрыі без руху і руху без матэрыі.* **2.** Перамяшчэнне каго-, чаго-н. у пэўным напрамку. *Вярчальны р. Механізм прыйшоў у р. Р. планет.* **3.** Змяненне становішча цела ці яго частак. *Р. рукі. Танцавальныя рухі. Ляжаць без руху.* **4.** *перан.* Унутраны штуршок, выкліканы якім-н. пачуццём, перажываннем. *Душэўныя рухі.* **5.** Язда, хада ў розных напрамках. *Р. транспарту. Правілы дарожнага руху.* **6.** *перан.* Развіццё, напружанасць дзеяння. *Драматычны р. апавядання.* **7.** Актыўная дзейнасць многіх людзей, накіраваная на дасягненне агульнай сацыяльнай мэты. *Р. прыхільнікаў міру. Нацыянальна-вызваленчы р.* **8.** Колькаснае ці якаснае змяненне; рост, развіццё. *Р. народанасельніцтва.*

**РУ́ХА**, -і, *ДМ* рýсе, *мн.* -і, рух, *ж.* Невялікі цыліндрычны драўляны валік для гульні ў гарадкі. *Адной бітой выбіў пяць рух.*

**РУХАВІ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* **1.** Машына, якая пераўтварае які-н. від энергіі ў механічную работу. *Р. унутранага згарання. Рэактыўны р.* **2.** *перан., чаго.* Пра сілу, якая пабуджае да чаго-н., садзейнічае росту, развіццю ў якой-н. галіне (высок.). *Навука — магутны р. прагрэсу.* ‖ *памянш.* **рухавічóк**, -чкá, *мн.* -чкí, -чкóў, *м.* (да 1 знач.).

**РУХА́ВЫ**, -ая, -ае. Жвавы, хуткі ў рухах; напоўнены рухамі. *Рухавыя гульні.* ‖ *наз.* **рухáвасць**, -і, *ж.*

**РУ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** Знаходзіцца ў руху, перамяшчацца. *Войскі рухаліся на захад. Р. па службе* (атрымліваць павышэнне). *Справа не рухаецца* (стаіць на месцы). **2.** Рушыцца з месца, адпраўляцца. *Р. ў дарогу.* **3.** Варушыцца (у 1 знач.), мяняць становішча цела. *Сядзець, не рухаючыся. Ногі не рухаюцца* (не можа ступіць, ісці хто-н.). ‖ *прым.* **рýхальны**, -ая, -ае (да 3 знач.; спец.).

**РУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго-што.* Перамяшчаць, пхаючы ці цягнучы. *Р. воз.* **2.** *што.* Прыводзіць у рух, прымушаць дзейнічаць. *Р. пад'ёмны кран.* **3.** *чым.* Рабіць рухі, варушыць. *Р. пальцамі.* **4.** *перан., што.* Садзейнічаць развіццю чаго-н. *Р. навуку.* **5.** Тое, што і *рухацца* (у 2 знач.;

разм.). *Будзем р. да вёскі.* ‖ *наз.* **рýханне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **рýхальны**, -ая, -ае. *Рухальная сіла. Рухальныя нервы.*

**РУХÁЧ**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* (спец.). Назва ўстройстваў, якія забяспечваюць рух (у 2 знач.; вінт[1] самалёта, кола, гусеніцы танка).

**РУХÓМАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* рухомы. **2.** Рухомая маёмасць (спец.).

**РУХÓМЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны рухацца, які можа рухаць. *Р. блок.* **2.** Які пераязджае з месца на месца. *Р. лазарэт.* **3.** Які можа змяняцца ў залежнасці ад умоў; які хутка развіваецца, мяняецца. *Рухомыя формы арганізацыі. Рухомая з'ява.* ○ **Рухомая маёмасць** (спец.) — такая, якая можа быць перамешчана з месца на месца. **Рухомы састаў** — сукупнасць сродкаў аўтамабільнага, чыгуначнага і іншых відаў транспарту. ‖ *наз.* **рухóмасць**, -і, *ж.*

**РУЦІ́НА**, -ы, *ж.* Боязь змен, кансерватызм і застой у справах, ладзе жыцця. ‖ *прым.* **руці́нны**, -ая, -ае.

**РУЦІНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік руціны, кансерватар (у 1 знач.). ‖ *ж.* **руцінёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **руцінёрскі**, -ая, -ае.

**РУЧАІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -чаі́н, *ж.* Невялікі ручай. *Вясна разлівалася ручаінамі.* ‖ *памянш.-ласк.* **ручаі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**РУЧÁЙ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Невялікі натуральны вадзяны паток, які цячэ струменем. *Горны р. Бягуць вясеннія ручаі. Ручаі слёз* (перан.). ‖ *памянш.* **ручаёк**, -чайкá, *мн.* -чайкі́, -чайкóў, *м.; прым.* **ручайкóвы**, -ая, -ае. ‖ *прым.* **ручаёвы**, -ая, -ае.

**РУЧÁЙКА**, -і, *ДМ* -áйцы, *мн.* -і, -чáек, *ж.* **1.** Верацяно з пражай. *Напрала дзве ручайкі.* **2.** Пучок валакна лёну або канапель. *Яе валасы нагадвалі ачэсаную ручайку лёну.* ‖ *прым.* **ручáечны**, -ая, -ае *і* **ручáйкавы**, -ая, -ае.

**РУЧÁЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак., за каго-што.* Прымаць на сябе адказнасць за каго-, што-н. *Р. за дакладнасць інфармацыі. Р. за калегу.* ‖ *зак.* **паручы́цца**, -учýся, -ýчышся, -ýчыцца.

**РÝЧАЧКА** *гл.* рука.

**РÝЧКА**[1], -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Частка прадмета, за якую яго трымаюць або бяруцца рукой. *Р. дзвярэй. Р. партфеля, малатка.* **2.** Пісьмовая прылада ў выглядзе палачкі, дзяржання, куды ўстаўляецца пяро, стрыжань. *Аўтаматычная р. Шарыкавая р.* ‖ *прым.* **рýчачны**, -ая, -ае.

**РÝЧКА**[2] *гл.* рука.

**РУЧНІ́К**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* Вузкі прадаўгаваты кавалак тканіны для выцірання твару, рук ці пасуды. *Вышываны р.* ‖ *памянш.* **ручнічóк**, -чкá, *мн.* -чкі́, -чкóў, *м.* ‖ *прым.* **ручнікóвы**, -ая, -ае. *Ручніковая тканіна.*

**РУЧНЫ́**, -áя, -óе. **1.** *гл.* рука. **2.** Прызначаны, прыстасаваны для рук. *Р. гадзіннік* (наручны). *Р. багаж* (які можна везці пры сабе). **3.** Які робіцца рукамі; які прыводзіцца ў дзеянне рукамі. *Ручная вышыўка. Ручная граната* (для кідання рукой). *Р. набор* (друкарскі). **4.** Пра работу, падлікі: не аўтаматычны (спец.). *Ручныя вылічэнні.* **5.** Пра звера, птушку: прыручаны, які прывык да чалавека. *Ручная вавёрка. Р. арол.* ○ **Ручны продаж** — 1) гандаль з рук; 2) у аптэцы: продаж без рэцэптаў.

**РУЧЫ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., рýчыць; *незак.*, звычайна *безас.* (разм.). Удавацца, везці, шчасціць. *Мне не ручыць у гульні на грошы.*

**РУЧЫ́ШЧА** *гл.* рука.

**РÝШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *зак.* і *незак.* **1.** *зак.* Скрануцца з месца, пачаць рух. *Р. з месца.* **2.** *зак.* Накіравацца куды-н. *Р. ў паход. За кароткі час будаўніцтва значна рушылася наперад* (перан.: атрымала далейшае развіццё). **3.** *незак.* Тое, што і *рухацца. Ніхто не рушыцца з месцаў.*

**РÝШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; *зак.* і *незак.* **1.** *зак.* Пачаць рух; накіравацца куды-н. *Трактар рушыў з месца. Атрад рушыў да лесу. Калгас за апошнія гады значна рушыў наперад* (перан.: атрымаў далейшае развіццё). **2.** *незак.* Тое, што і *рухацца* (у 1 знач.). *Ужо рушыць вясна.* **3.** *зак.* і *незак., каго-што.* Прымусіць (прымушаць) рухацца каго-, што-н.; адправіць каго-, што-н. куды-н. *Р. каня з месца. Р. войска ў бой.* **4.** *незак.* (звычайна з адмоўем), *каго-чаго.* Чапаць, закранаць (разм.). *Гэтага чалавека не рушце, ён тут ні пры чым.*

**РЫÁЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грашовая адзінка ў Іране і некаторых іншых краінах.

**РЫБ...** Першая частка складаных слоў са знач. «рыбны», напр.: *рыбінспекцыя, рыбнагляд.*

**РЫ́БА**, -ы, *мн.* -ы, рыб, *ж.* **1.** Вадзяная пазваночная жывёліна з канечнасцямі ў выглядзе плаўнікоў, якая дыхае жабрамі. *Касцявыя рыбы. Драпежная р. Рачная, марская р. Біцца як р. аб лёд* (пакутліва шукаць выйсце з цяжкага становішча; разм.). *Адчуваць сябе дзе-н. як р. ў вадзе* (натуральна, проста, добра; разм.). *У каламутнай вадзе рыбу лавіць* (перан.: мець выгаду, карыстаючыся няяснасцю абставін; разм., неадабр.). **2.** Частка тушы (тушкі) такой жывёліны, якая ўжыв. ў ежу. *Смажаная, вэнджаная, салёная р. Р. пад марынадам.* ‖ *памянш.* **ры́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* (ласкавы зварот да жанчыны, дзіцяці; разм.). ‖ *прым.* **ры́бны**, -ая, -ае *і* **ры́бін**, -а (да 1 знач.). *Рыбная лоўля. Рыбная прамысловасць. Рыбныя катлеты. Рыбны дзень* (у які гатуюцца рыбныя, а не мясныя стравы). *Рыбіна луска. Рыбін тлушч* (вадкі тлушч з печані трасковых рыб).

**РЫБА...** Першая частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да рыбы, яе лоўлі, да развядзення, апрацоўкі рыбы, напр.: *рыбаапрацоўка, рыбаахова, рыбагадавальнік, рыбагаспадарка, рыбаедны, рыбалакацыя, рыбапрамысловы;* 2) які мае адносіны да рыбы (у 2 знач.), да рыбных прадуктаў, напр.: *рыбавяндлярны, рыбазасольны, рыбакансервы, рыбамаразільны, рыбапрадукты.*

**РЫБАВÓД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па рыбаводстве.

**РЫБАВÓДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне рыб у вадаёмах як галіна народнай гаспадаркі, гаспадарчай дзейнасці. ‖ *прым.* **рыбавóдчы**, -ая, -ае *і* **рыбавóдны**, -ая, -ае.

**РЫБАВÓЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Судна для перавозкі жывой рыбы. ‖ *прым.* **рыбавóзны**, -ая, -ае.

**РЫБÁК**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* Чалавек, які займаецца рыбнай лоўляй як промыслам, а таксама як аматар рыбнай лоўлі. *Калі бацька р., дык і дзеці ў ваду глядзяць* (з нар.). ‖ *ж.* **рыбáчка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **рыбáцкі**, -ая, -ае *і* **рыбáчы**, -ая, -ае.

**РЫБÁЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). Рыбная лоўля (у рыбакоў-аматараў). *Паехаць на рыбалку.*

**РЫБАЛÓЎ**, -лóва, *мн.* -лóвы, -лóваў, *м.* **1.** Чалавек, які ловіць рыбу (вудай, перамётам і пад.). *Р.-аматар.* **2.** Тое, што і *рыбак. Р. з вялікім стажам.* ‖ *прым.* **рыбалóўны**, -ая, -ае. *Рыбалоўныя снасці.*

**РЫБАЛÓЎСТВА**, -а, *н.* Лоўля рыбы як промысел ці як галіна народнай гаспадаркі. ‖ *прым.* **рыбалавéцкі**, -ая, -ае. *Рыбалавецкая арцель. Р. траулер.*

**РЫБАХÓД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыстасаванне для самастойнага праходу рыбы цераз штучныя і натуральныя перашкоды (плаціны, вадаспады і інш.). ‖ *прым.* **рыбахóдны**, -ая, -ае.

**РЫБÁЦКІ** *гл.* рыбак.

**РЫБÁЧЫ** *гл.* рыбак.

**РЫБÁЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* (разм.). Займацца рыбнай лоўляй; быць рыбаком.

**РЫБÉЦ**, -бцá, *мн.* -бцы́, -бцóў, *м.* Прамысловая рыба сямейства карпавых.

**РЫ́БІН** *гл.* рыба.

**РЫ́БІНА**, -ы, *мн.* -ы, -бін, *ж.* (разм.). Адна рыба, звычайна буйная.

**РЫ́БКА** *гл.* рыба.

**РЫБНАГЛЯ́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* (афіц.). Нагляд за выкананнем правіл рыбалоўства. *Дзяржаўны р.* ‖ *прым.* **рыбнагля́дны**, -ая, -ае.

**РЫБНІ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па рыбалоўстве; работнік рыбных промыслаў.

**РЫ́БНЫ** *гл.* рыба.

**РЫВÓК**, рыўкá, *мн.* рыўкі́, рыўкóў, *м.* **1.** Рэзкі, парывісты рух рукамі або целам. *Ускочыць на каня спрытным рыўком.* **2.** У цяжкай атлетыцы: пад'ём цяжару над галавой на выцягнутых руках адным бесперапынным рухам. *Вынікі ў рыўку.* **3.** *перан.* Рэзкае ўзмацненне, якое парушае агульны рытм работы. *Праца без рыўкоў.* ‖ *прым.* **рыўкóвы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.; спец.).

**РЫГАРЫ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Празмерная строгасць, прамалінейнасць у выка-

нанні маральных прынцыпаў, у паводзінах. ‖ *прым.* **рыгарыстычны**, -ая, -ае.

**РЫГАРЫСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Чалавек, які вызначаецца рыгарызмам. ‖ *ж.* **рыгарыстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**РЫГАРЫСТЫЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Схільны да рыгарызму. *Р. погляд на рэчы.* ‖ *наз.* **рыгарыстычнасць**, -і, *ж.*

**РЫГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Вывяргаць ротам прынятую ежу, ванітаваць. **2.** Моцна ікаць. ‖ *аднакр.* **рыгнуць**, -ну, -неш, -не; -нём, -няце, -нуць; -ні. ‖ *наз.* **рыганне**, -я, *н.*

**РЫДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Галасна, сутаргава плакаць. *Р. над нябожчыкам.* ‖ *наз.* **рыданне**, -я, *н.*

**РЫДВАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Вялікая дарожная карэта.

**РЫДЛЁЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -лёвак, *ж.* Ручная прылада для капання; металічная лапата. ‖ *прым.* **рыдлёвачны**, -ая, -ае.

**РЫДЫКЮЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (уст.). Ручная жаночая сумачка. ‖ *прым.* **рыдыкюльны**, -ая, -ае.

**РЫЖАБАРОДЫ**, -ая, -ае. З рыжай барадой.

**РЫЖАВАЛОСЫ**, -ая, -ае. З рыжымі валасамі.

**РЫЖЫ**, -ая, -ае. **1.** Чырвона-жоўтага колеру. *Рыжая ліса. Рыжыя вусы.* **2.** З валасамі такога колеру, рыжавалосы. ‖ *наз.* **рыжасць**, -і, *ж.*

**РЫЖЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ядомы пласціністы грыб з рыжай шапачкай. ‖ *прым.* **рыжыкавы**, -ая, -ае.

**РЫЖЭЦЬ**, -эю, -эеш, -эе; *незак.* **1.** Станавіцца рыжым, рыжэйшым. *Валасы рыжэюць.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Віднецца (пра што-н. рыжае). *На палянах рыжэе леташні бур'ян.* ‖ *зак.* **зрыжэць**, -эю, -эеш, -эе (да 1 знач.) *і* **парыжэць**, -эю, -эеш, -эе (да 1 знач.).

**РЫЗА**, -ы, *мн.* -ы, рыз, *ж.* **1.** Адзенне, якое надзявае святар пры набажэнстве. *Пазалочаная р.* **2.** Фігурная металічная накладка на абразах, якая пакідае адкрытымі толькі твар і рукі святога. ‖ *прым.* **рызны**, -ая, -ае.

**РЫЗЗЁ**, -я, *н., зб.* (разм.). Старое, падранае адзенне; анучы, старызна. *Затыкаць шчыліны рыззём.* ‖ *прым.* **рыззёвы**, -ая, -ае.

**РЫЗІНА**, -ы, *ж.* Эластычны матэрыял, які атрымліваецца шляхам вулканізацыі каўчуку. ◊ **Цягнуць рызіну** (разм., неадабр.) — зацягваць якую-н. справу, рашэнне чаго-н. ‖ *прым.* **рызінавы**, -ая, -ае.

**РЫЗІНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). **1.** Невялікі кавалачак рызіны, якім сціраюць напісанае; сцірка. **2.** Ніткі з рызіны, а таксама шнур, тасьма з рызінавых нітак. **3.** Спецыяльны від вязання, які мае ўласцівасць расцягвацца. *Вязаць рызінкай.* ‖ *прым.* **рызінкавы**, -ая, -ае.

**РЫЗМАНЫ**, -оў, *адз.* рызман, -а, *м.* (разм.). Падранае, зношанае адзенне; лахманы. *Укрыць бульбу рызманамі, каб не памерзла.*

**РЫЗНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Памяшканне пры царкве, у якім захоўваюцца рызы і царкоўныя рэчы. ‖ *прым.* **рызнічны**, -ая, -ае.

**РЫЗЫКА**, -і, *ДМ* -зыцы, *ж.* **1.** Магчымая небяспека, пагроза чаму-н. *Ісці на рызыку. Без усякай рызыкі.* **2.** Дзеянне наўдачу з надзеяй на шчаслівы канец. *На сваю рызыку дзейнічаць* (на сваю адказнасць).

**РЫЗЫКАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; *незак.* **1.** Ісці на рызыку, рабіць рызыкоўны ўчынак. *Ён не баіцца р.* **2.** *кім-чым.* Падвяргаць каго-, чаго-н. рызыцы (у 1 знач.). *Р. жыццём.* **3.** *з інф.* Ісці на ўчынак, звязаны з магчымымі непрыемнасцямі. *Р. заблудзіцца ў лесе.* ‖ *аднакр.* **рызыкнуць**, -ну, -неш, -не; -нём, -няце, -нуць; -ні (да 1 і 2 знач.).

**РЫЗЫКАНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Смелы, адважны чалавек. ‖ *ж.* **рызыкантка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**РЫЗЫКОЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Звязаны з рызыкай, напоўнены рызыкай. *Р. крок. Так рабіць рызыкоўна* (у знач. вык.). **2.** *перан.* Непрыстойны, двухсэнсоўны. *Р. туалет. Рызыкоўныя прыпеўкі.* ‖ *наз.* **рызыкоўнасць**, -і, *ж.*

**РЫК**, -у, *м.* Моцны працяглы роў (хатніх жывёл); дзікі роў, злоснае рыканне (лясных жывёл). *Р. каровы. Ільвіны р.*

**РЫКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра хатніх і дзікіх жывёл: утвараць рык. *Рыкае карова. Рыкаў леапард.* **2.** *перан.* Крычаць, гаварыць груба, раздражнёна і адрывіста (разм.). *Р. на падначаленых.* ‖ *аднакр.* **рыкнуць**, -ну, -неш, -не; -нём, -няце, -нуць; -ні. ‖ *наз.* **рыканне**, -я, *н.*

**РЫКАШЭТ**, -у, *М* -шэце, *м.* Палёт цвёрдага цела пад вуглом пасля ўдару аб якую-н. паверхню. *Куля адскочыла рыкашэтам.* ‖ *прым.* **рыкашэтны**, -ая, -ае.

**РЫКША**, -ы, *мн.* -ы, рыкш *і* -аў, *м.* У краінах Паўднёва-Усходняй Азіі: чалавек, які, запрогшыся ў лёгкую двухколавую каляску, перавозіць седакоў і грузы.

**РЫЛА**, -а, *мн.* -ы, рыл, *н.* **1.** Выцягнутая пярэдняя частка галавы ў некаторых жывёл. *Свіное р.* **2.** Тое, што і *твар* (разм., лаянк.). *У яго не твар, а сапраўднае р.* **3.** Верхняя выцягнутая частка чаго-н. *Р. бутэлькі.* ◊ **Ні вуха ні рыла** (не ведае, не разумее; разм., неадабр.) — зусім нічога не ведае. ‖ *памянш.* **рыльца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* *Р. ў пуху ў каго-н.* (перан.: хто-н. ублытаны ў нячыстую справу; разм.).

**РЫМАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Майстар, які шые раменную вупраж (хамуты, сёдлы, вуздэчкі). ‖ *прым.* **рымарскі**, -ая, -ае.

**РЫМАРНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* Рымарская майстэрня. *Калгасная р.*

**РЫМАРСТВА**, -а, *н.* Рамяство, занятак рымара. ‖ *прым.* **рымарскі**, -ая, -ае. *Рымарскія вырабы.*

**РЫНАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* **1.** Сфера таварнага абарачэння, тавараабароту. *Знешні р. Унутраны р. Рынкі збыту* (раёны рэалізацыі тавараў; спец.). **2.** Месца рознічнага гандлю пад адкрытым небам або ў гандлёвых радах; базар. *Калгасны р. Крыты р. Гандляваць на рынку.* ‖ *прым.* **рыначны**, -ая, -ае. *Рыначныя адносіны. Рыначная цана.*

**РЫНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Абгароджаная канатам пляцоўка для спаборніцтваў па боксе. *Выхад на р. Пакінуць р.* (таксама перан.: перастаць займацца боксам).

**РЫНДА**[1], -ы, *ДМ* -дзе, *м.* На Русі ў Сярэднія вякі: воін царскай прыдворнай аховы.

**РЫНДА**[2], -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* У выразе: **рынду біць** (спец.) — на гандлёвых суднах у старыя часы, а таксама ў парусным флоце: тройчы ўдарыць у звон роўна ў поўдзень.

**РЫНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* Імкліва кінуцца, накіравацца, хлынуць. *Р. ў атаку. Вада рынулася, прарваўшы загароду.*

**РЫП**, -у, *м.* Рэзкі гук, які ўтвараецца пры трэнні. *Р. колаў. Р. палазоў.*

**РЫПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Утвараць рыпенне, рыпець. *Рыпалі дзверы. Р. варотамі.* **2.** Іграць непрафесійна на якім-н. музычным інструменце (звычайна на гармоніку; разм.). *Рыпаў гармонік.* ‖ *аднакр.* **рыпнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **рыпанне**, -я, *н.*

**РЫПЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -піць; *незак.* Утвараць рып, скрыпець. *Падлога рыпіць. Боты рыпяць. Пад нагамі рыпіць снег.* ‖ *аднакр.* **рыпнуць**, -не; -ні. ‖ *наз.* **рыпенне**, -я, *н.*

**РЫПЛІВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *рыпучы*. *Рыплівыя дзверы.* ‖ *наз.* **рыплівасць**, -і, *ж.*

**РЫПС**, -у, *м.* Тоўстая, моцная тканіна палатнянага перапляцення ў дробны рубчык. ‖ *прым.* **рыпсавы**, -ая, -ае.

**РЫПУЧЫ**, -ая, -ае. Які ўтварае рып. *Рыпучыя вароты. Рыпучыя колы. Р. голас* (перан.). ‖ *наз.* **рыпучасць**, -і, *ж.*

**РЫС**, -у, *м.* Злак з белым прадаўгаватым зернем, якое скарыстоўваецца ў ежу, а таксама яго зерне. *Плантацыі рысу. Піражкі з рысам.* ‖ *прым.* **рысавы**, -ая, -ае. *Р. суп.*

**РЫСА**, -ы, *мн.* -ы, рыс, *ж.* **1.** Вузкая паласа, лінія. *Правесці рысу. Падвесці рысу пад чым-н.* (таксама перан.: падвесці вынік, скончыць з якой-н. справай). **2.** Лінія (існуючая ці ўяўная), якая раздзяляе што-н., рубеж. *Р. пад'ёму вады.* **3.** Уласцівасць, адметная адзнака, якасць. *Рысы характару. Рысы новага чалавека.* **4.** *мн.* Тое, што і рысы твару. *Дарагія рысы.* ◊ **Рысы твару** — абрысы, аблічча твару. *Прыгожыя рысы твару.* **У агульных рысах** — без падрабязнасцей. ‖ *памянш.* **рыска**, -і, *ДМ* -рысцы, *мн.* -і, -сак, *ж.*

**РЫСА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да рысу, да яго вырошчвання і апрацоўкі,

напр.: *рысаапрацоўчы, рысаачышчальны, рысаўборачны.*

**РЫСАВА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца рысаваннем, хто робіць малюнкі для чаго-н. *Добры р., горшы гравёр.* ‖ *ж.* **рысава́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**РЫСАВА́ЦЦА**, -су́юся, -су́ешся, -су́ецца; -су́йся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Віднецца, паўставаць ва ўяўленні. *Удалечыні рысуюцца абрысы гор. Знаёмы вобраз рысаваўся ва ўяўленні* (перан.). **2.** Старацца паказаць сябе з выгаднага боку, выклікаць чым-н. інтарэс да сябе. *Р. перад людзьмі.* ‖ *наз.* **рысо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 2 знач.).

**РЫСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Перадаваць прадметы на плоскасці ад рукі пры дапамозе графічных сродкаў (звычайна контурамі, рыскамі і пад.). *Р. з натуры. Р. партрэт.* **2.** *перан.* Мысленна падаваць у якіх-н. вобразах, формах. *Уяўленне рысуе будучыню.* ‖ *зак.* **нарысава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны. ‖ *наз.* **рысава́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **рысава́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Рысавальная папера.*

**РЫСАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па рысаводстве.

**РЫСАВО́ДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне рысу як галіна сельскай гаспадаркі. ‖ *прым.* **рысаво́дчы**, -ая, -ае.

**РЫ́САВЫ** *гл.* рыс.

**РЫСА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Пародзісты, рысісты конь. *Памчаць на рысаку. Арлоўскія рысакі.* ‖ *прым.* **рыса́чы**, -ая, -ае.

**РЫСІ́НЫ** *гл.* рысь².

**РЫСІ́СТЫ**, -ая, -ае. Які валодае добрай рэзвай рыссю. *Р. конь.* ‖ *наз.* **рысі́стасць**, -і, *ж.*

**РЫСІ́ЦЬ**, рышу́, рысі́ш, рысі́ць; рысі́м, рысіце́, рыся́ць; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Бегчы рыссю (пра коней і інш. жывёл). **2.** Ехаць на кані рыссю.

**РЫ́СКА** *гл.* рыса.

**РЫ́СКАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* (спец.). Пра судна: ухіляцца ад курсу то ў адзін, то ў другі бок. ‖ *наз.* **рыск**, -у, *м.* *і* **ры́сканне**, -я, *н.*

**РЫ́СЛІНГ**, -у, *м.* Гатунак белага столовага вінаграднага віна. ‖ *прым.* **ры́слінгавы**, -ая, -ае.

**РЫСО́РА**, -ы, *мн.* -ы, рысо́р, *ж.* Пругкая гнутая стальная паласа (або прыстасаванне з такіх палос) паміж воссю і кузавам экіпажа, аўтамабіля, вагона і пад., якая змякчае штуршкі пры яздзе. ‖ *прым.* **рысо́рны**, -ая, -ае.

**РЫСО́ЎКА** *гл.* рысавацца.

**РЫСУ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Тое, што і *малюнак. Майстар рысунка.* ‖ *прым.* **рысу́начны**, -ая, -ае.

**РЫСЬ**¹, *ж.* **1.** Спосаб бегу каня (або іншай жывёлы), пры якім адначасова выносяцца наперад ногі пярэдняя левая і задняя правая або пярэдняя правая і задняя левая. *Ехаць рыссю.* **2.** Часты і павольны бег чалавека.

**РЫСЬ**², -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Драпежная млекакормячая жывёліна сямейства кашэчых з незвычайна вострым зрокам. ‖ *прым.* **рысі́ны**, -ая, -ае. *Рысіныя вочы* (таксама перан.: вострыя, злыя, пранізлівыя).

**РЫСЯНЯ́** *і* **РЫСЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня рысі².

**РЫ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У Старажытнай Грэцыі і Рыме: прамоўца, а таксама настаўнік красамоўства. ‖ *прым.* **ры́тарскі**, -ая, -ае. *Рытарскае мастацтва.*

**РЫТАРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рыторыка. **2.** Напышлівы, упрыгожаны словамі (кніжн.). *Р. стыль.* ‖ *наз.* **рытары́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**РЫТМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Раўнамернае чаргаванне якіх-н. элементаў (гукавых, рухальных). *Музычны р. Р. верша. Р. рухаў. Танцавальныя рытмы. Сардэчны р.* **2.** *перан.* Наладжаны ход чаго-н., размеранасць у праходжанні чаго-н. *Р. жыцця. Рабочы р.* ‖ *прым.* **рытмі́чны**, -ая, -ае *і* **ры́тмавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**РЫТМІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак. і незак., што* (спец.). Зрабіць (рабіць) рытмічным. *Рытмізаваныя рухі.* ‖ *наз.* **рытміза́цыя**, -і, *ж.*

**РЫ́ТМІКА**, -і, *ДМ* -міцы, *ж.* **1.** Сістэма і характар рытму. *Р. верша.* **2.** Вучэнне аб рытме (у вершах, музыцы). **3.** Рытмічныя рухі з музычным суправаджэннем. *Урокі рытмікі.*

**РЫТМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рытм. **2.** Падпарадкаваны рытму (у 1 знач.), які раўнамерна чаргуецца. *Рытмічныя рухі. Рытмічная гімнастыка.* **3.** *перан.* Раўнамерны, зладжаны. *Рытмічная праца заводаў.* ‖ *наз.* **рытмі́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**РЫТО́РЫКА**, -і, *ДМ* -рыцы, *ж.* **1.** Тэорыя аратарскага мастацтва. **2.** Напышлівая і беззмястоўная гаворка. *Голая р.* ‖ *прым.* **рытары́чны**, -ая, -ае. *Рытарычнае пытанне* (прыём аратарскай мовы — сцвярджэнне ў форме пытання).

**РЫТУА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). **1.** Парадак абрадавых дзеянняў. *Р. пахавання.* **2.** Тое, што і *цырымонія. Воінскія рытуалы.* ‖ *прым.* **рытуа́льны**, -ая, -ае.

**РЫЎКО́ВЫ** *гл.* рывок.

**РЫФ**¹, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Шэраг падводных або выступаючых з вады скалістых узвышэнняў марскога дна. *Каралавыя рыфы.* ‖ *прым.* **ры́фавы**, -ая, -ае.

**РЫФ**², -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Адтуліна або пятля на парусе, у якія прасоўваецца завязка для сцягвання яго. *Брыць рыфы* (змяншаць плошчу паруса пры моцным ветры). ‖ *прым.* **ры́фавы**, -ая, -ае.

**РЫФЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Апрацоўка паверхні для надання ёй шурпатасці — нанясенне вузкіх вострых паглыбленняў (рыфляў).

**РЫ́ФЛЕНЫ**, -ая, -ае (спец.). Пра паверхню: нягладкі, з правільнымі радамі паглыбленняў і выступаў. *Рыфленае жалеза. Рыфленыя падэшвы.*

**РЫ́ФМА**, -ы, *мн.* -ы, рыфм *і* -аў, *ж.* Сугучнасць канцоў вершаваных радкоў. *Мужчынская р.* (з націскам на апошнім складзе вершаванага радка). *Жаночая р.* (з націскам на перадапошнім складзе вершаванага радка). *Гаварыць у рыфму.* ‖ *прым.* **ры́фменны**, -ая, -ае.

**РЫФМАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -му́ецца; *незак.* Утвараць рыфму. *Гэтыя словы рыфмуюцца паміж сабой.*

**РЫФМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і *рыфмавацца* (спец.). **2.** *што.* Падбіраць (словы) для атрымання рыфмы. ‖ *зак.* **зрыфмава́ць**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны (да 2 знач.). ‖ *наз.* **рыфмава́нне**, -я, *н.*

**РЫФМАПЛЁТ**, -а, *М* -лёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., зневаж.). Стваральнік недасканалых вершаў; рыфмач.

**РЫФМО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -мо́вак, *ж.* Сістэма, парадак чаргавання рыфмаў у вершы. *Перакрыжаваная р.*

**РЫХЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *незак.* Станавіцца рыхлым, рыхлейшым. *Глеба рыхлее.* ‖ *зак.* **парыхле́ць**, -е́е.

**РЫХЛІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Сельскагаспадарчая прылада для рыхлення глебы.

**РЫХЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; ры́хлены; *незак., што.* Рабіць рыхлым (звычайна пра ўскопванне). *Р. глебу.* ‖ *зак.* **узрыхлі́ць**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; -ры́хлены *і* **разрыхлі́ць**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; -ры́хлены. ‖ *наз.* **рыхле́нне**, -я, *н.*, **узрыхле́нне**, -я, *н. і* **разрыхле́нне**, -я, *н.*

**РЫ́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Порысты, рассыпісты, мяккі. *Р. снег. Рыхлая глеба.* **2.** *перан.* Пра стыль, выклад: расплывісты і вялы. *Рыхлая кампазіцыя.* ‖ *наз.* **ры́хласць**, -і, *ж.*

**РЫХТ**, -у, -хце, *м.* (разм.). У выразе: **рыхт у рыхт** — дакладна такі або такі самы. *Зрабіў р. у р. як ты сказаў.*

**РЫХТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *незак.* **1.** *да чаго, у што і з інф.* Рабіць прыгатаванні да чаго-н. *Р. да зімы. Р. ў дарогу. Р. да экзаменаў.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Быць у стане ці працэсе падрыхтоўкі; наспяваць, быць наперадзе. *Рыхтуюцца важныя падзеі.*

**РЫХТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Рабіць годным, гатовым (для выкарыстання, ужывання, для ажыццяўлення чаго-н., для работы). *Р. глебу пад пасевы. Р. хворага да аперацыі. Р. кадры.* **2.** *што.* Працаваць над выкананнем чаго-н., распрацаваць што-н. *Р. матэрыялы для даклада. Р. дыпломную работу.* **3.** *што.* Збірацца, намервацца зрабіць што-н., задумваць што-н. *Р. удар па праціўніку.* **4.** *што.* Варыць ежу, гатаваць. *Р. вячэру.*

**РЫ́ХТЫК**, *прысл.* (разм.). Правільна, якраз, дакладна (таксама, такі самы).

*Зраблю р. так, як ты сказаў. Сын — р. бацька* (у знач. прым., нязм.).

**РЫ́ЦАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У сярэдневяковай Еўропе: феадал, які належаў да ваенна-землеўладальніцкага саслоўя, а таксама цяжкаўзброены воін, які знаходзіўся ў васальнай залежнасці ад свайго сюзерэна. *Р. журботнага вобраза* (пра Дон-Кіхота, героя рамана Сервантэса). *Р. без страху і дакору* (перан.: пра смелага, ва ўсім бездакорнага чалавека; высок.). *Р. плашча і кінжала* (перан.: тайны грабежнік і забойца; кніжн.). **2.** *перан.* Самаадданы, высакародны чалавек (высок.). *Р. рэвалюцыі.* ‖ *прым.* **ры́царскі**, -ая, -ае. *Рыцарскія даспехі. Р. ўчынак.*

**РЫ́ЦАРСТВА**, -а, *н.* **1.** *зб.* У феадальнай Еўропе: прывілеяванае ваенна-землеўладальніцкае саслоўе, рыцары (у 1 знач.). **2.** Самаадданасць, высакародства (кніжн.). *Праявіць р.*

**РЫ́ЦЦА**, ры́юся, ры́ешся, ры́ецца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Капацца ў чым-н. рыхлым, сыпкім (пра жывёл). *На пожні рыліся свінні.* **2.** *перан.* Перабіраць, перакладваць што-н. (звычайна шукаючы што-н.). *Р. ў шуфлядзе.*

**РЫЦЫ́НА**, -ы, *ж.* Алей, які здабываецца з насення клешчавіны і ўжываецца як слабіцельнае. ‖ *прым.* **рыцы́навы**, -ая, -ае.

**РЫЦЬ**, ры́ю, ры́еш, ры́е; ры́ты; *незак., што.* **1.** Капаць, раскопваць рыхлае, сыпкае (лычом, рылам); капаючы, даставаць з зямлі, вырываць. *Свіння рые пожню. Дзік рые бульбу.* **2.** Вымаючы зямлю, рабіць паглыбленне (пра жывёл). *Барсук рые нару.* ‖ *зак.* **вы́рыць**, -рыю, -рыеш, -рые; -рыты. *В. нару.* ‖ *наз.* **рыццё**, -я́, *н.*

**РЫЧА́Г**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Устройства, якое мае пункт апоры і служыць для ўраўнаважвання большай сілы пры дапамозе меншай, а таксама для выканання якой-н. работы. *Падважыць груз рычагом. Р. скорасці. Рычагі кіравання* (таксама перан.). **2.** *перан.* Сродак, якім можна паўздзейнічаць на каго-, што-н., прывесці каго-, што-н. у рух. *Пісьменнасць — р. культуры.* ‖ *памянш.* **рычажо́к**, -жка́, *мн.* -жкі́, -жко́ў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **рыча́жны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Р. механізм.*

**РЫШТАВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Часовае збудаванне з дошак, стоек або металічных трубак, якое ўстанаўліваецца ўздоўж сцен для будаўнічых або рамонтных работ. *Будынак у рыштаванні.*

**РЫШТО́К**, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* Жалабок, канаўка сцёку вады. *Прыдарожныя рышткі.*

**РЫШТУ́НАК**, -нку, *м., зб.* Набор, сукупнасць прыстасаванняў, неабходных для якога-н. занятку, для якой-н. работы. *Рыбацкі р. Паходны р.*

**РЫШЭЛЬЕ́.** **1.** *нескл., н.* Ажурная вышыўка з абкіданым контурам малюнка. *Салфетка з р.* **2.** *нязм.* Пра ажурную вышыўку з такім контурам. *Вышыўка р.*

**РЭ...** Прыстаўка, якая ўтварае дзеясловы і назоўнікі са знач. паўторнасці або процілегласці, напр.: *рэарганізаваць, рээвакуіраваць, рэканструкцыя.*

**РЭАБІЛІТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Аднавіць (аднаўляць) былую добрую рэпутацыю або ў ранейшых правах. ‖ *звар.* **рэабілітава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся. ‖ *наз.* **рэабіліта́цыя**, -і, *ж.*

**РЭАБІЛІТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* рэабілітаваць. **2.** Устараненне вынікаў якой-н. цяжкай хваробы або траўмы (спец.). *Медыцынская р.* ‖ *прым.* **рэабілітацы́йны**, -ая, -ае. *Р. цэнтр.*

**РЭАГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; *незак., на што.* **1.** Адказваць якім-н. чынам на раздражненне, уздзеянне звонку. *Сэрца па-рознаму рэагуе на фізічную нагрузку.* **2.** Праяўляць свае адносіны да чаго-н. *Р. на скаргу.* ‖ *зак.* **прарэагава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й, **зрэагава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й *і* **адрэагава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й (да 2 знач.; разм.). ‖ *наз.* **рэагава́нне**, -я, *н. і* **рэа́кцыя**, -і, *ж. Рэагаванне вока на святло. Гэта навіна выклікала ў людзей дваякую рэакцыю.* ‖ *прым.* **рэакты́ўны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**РЭА́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апарат або ўстаноўка, у якой адбываецца фізічная (ядзерная) або хімічная рэакцыя. *Ядзерны р. Хімічны р.* ‖ *прым.* **рэа́ктарны**, -ая, -ае.

**РЭАКТЫ́ВЫ**, -аў, *адз.* -тыў, -ты́ву, *м.* (спец.). Рэчывы, якія прымяняюцца для ажыццяўлення хімічнай рэакцыі. *Хімічныя р.* ‖ *прым.* **рэакты́ўны**, -ая, -ае.

**РЭАКТЫ́ЎНЫ**[1], -ая, -ае (спец.). **1.** *гл.* рэактывы. **2.** Які мае адносіны да ўтварэння такога руху, пры якім на цела, што рухаецца, дзейнічае сіла выцякаючага з яго струменя газу, пары, накіраваная ў бок, супрацьлеглы руху. *Р. рух. Р. рухавік. Р. самалёт* (з рэактыўным рухавіком). *Рэактыўная артылерыя.* **3.** Здольны рэагаваць на знешнія ўздзеянні, які наступае пад уплывам знешніх уздзеянняў. *Р. стан* (расстройства псіхічнай дзейнасці, выкліканае эмацыянальным узрушэннем). ‖ *наз.* **рэакты́ўнасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**РЭАКТЫ́ЎНЫ**[2] *гл.* рэагаваць.

**РЭАКЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які ажыццяўляе рэакцыю[2], дзейнічае ў інтарэсах рэакцыі[2]. *Р. друк. Рэакцыйныя рэжымы.* ‖ *наз.* **рэакцы́йнасць**, -і, *ж.*

**РЭА́КЦЫЯ**[1], -і, *ж.* **1.** *гл.* рэагаваць. **2.** Пертварэнне адных рэчываў у другія (хімічная рэакцыя) або пераўтварэнне атамных ядзер у выніку іх узаемадзеяння з іншымі элементарнымі часціцамі (ядзерная рэакцыя). *Ланцуговая р.* (самастойны працэс пераўтварэння атамаў — у хімічнай рэакцыі або атамных ядзер — у ядзернай рэакцыі; таксама перан.: пра шэраг дзеянняў, якія ўзаемна выклікаюцца; кніжн.). **3.** Рэзкая перамена ў самаадчуванні, упадак, слабасць пасля ўздыму, напружання. *Паслястрэсавая р.*

**РЭА́КЦЫЯ**[2], -і, *ж.* Палітыка актыўнага супраціўлення грамадскаму прагрэсу і падаўлення рэвалюцыйнага руху, якую вядуць эксплуататарскія класы ў барацьбе за захаванне або зварот сваіх правоў і палітычнага панавання, за захаванне аджыўшых грамадскіх парадкаў. *Палітычная р.*

**РЭАКЦЫЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік палітычнай рэакцыі[2], вораг прагрэсу, дэмакратыі. *Крайні р.* ‖ *ж.* **рэакцыяне́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак.

**РЭАЛІЗАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -зу́ецца; *зак.* і *незак.* **1.** Ажыццявіцца (ажыццяўляцца), здзейсніцца (здзяйсняцца) (кніжн.). *Задумы рэалізаваліся.* **2.** Перавесціся (пераводзіцца) у грошы (пра каштоўнасці; спец.). ‖ *наз.* **рэаліза́цыя**, -і, *ж.*

**РЭАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Ажыццявіць (ажыццяўляць), здзейсніць (здзяйсняць) (кніжн.). *Р. планы.* **2.** Тое, што і *прадаць* (прадаваць) (у 1 знач.; спец.). *Р. прадукцыю.* ‖ *наз.* **рэаліза́цыя**, -і, *ж.*

**РЭАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Кірунак у мастацтве, які ставіць мэтай праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці ў яе тыповых рысах. *Крытычны р. Р. Якуба Коласа.* **2.** Яснае і цвярозае разуменне рэчаіснасці пры ажыццяўленні чаго-н. *Палітычны р.* ‖ *прым.* **рэалісты́чны**, -ая, -ае. *Рэалістычнае мастацтва. Р. кірунак у літаратуры. Р. погляд на жыццё.*

**РЭАЛІЗО́ЎВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* **1.** Ажыццяўляцца, здзяйсняцца (кніжн.). *Намечаны план пачаў р.* **2.** Пераводзіцца ў грошы (пра каштоўнасці; спец.). ‖ *наз.* **рэаліза́цыя**, -і, *ж.*

**РЭАЛІЗО́ЎВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* **1.** Ажыццяўляць, здзяйсняць (кніжн.). *Р. задумы.* **2.** Пераводзіць у грошы, прадаваць (спец.). *Р. тавар.* ‖ *наз.* **рэаліза́цыя**, -і, *ж.*

**РЭАЛІ́СТ**[1], -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Мастак — паслядоўнік рэалізму (у 1 знач.). *Пісьменнік-р. Мастак-р.* **2.** Чалавек, які правільна ўлічвае ў сваёй дзейнасці ўмовы рэальнай рэчаіснасці. *Цвярозы р.* ‖ *ж.* **рэалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 2 знач.).

**РЭАЛІ́СТ**[2], -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* У дарэвалюцыйнай Расіі: вучань рэальнага вучылішча.

**РЭАЛІСТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рэалізм. **2.** Які зыходзіць з разумення і ўліку рэальных абставін, практычны. *Р. падыход да жыцця. Рэалістычна* (прысл.) *глядзець на рэчы.* ‖ *наз.* **рэалісты́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**РЭА́ЛІЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Адзінкавы прадмет, рэч; тое, што ёсць, існуе.

**РЭА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які сапраўды існуе ў рэчаіснасці, не ўяўны. *Р. факт.* **2.** Які можа быць ажыццёўлены, здзейснены. *Рэальныя планы. Р. тэрмін.* **3.** Практычны, заснаваны на разуменні наяўных умоў, абставін. *Рэальная палітыка. Р. по-*

*гляд на жыццё.* ○ **Рэальнае вучылішча** — у дарэвалюцыйнай Расіі: агульнаадукацыйная сярэдняя навучальная ўстанова без выкладання старажытных моў, з пераважаннем у навучальным плане прыроданавукова-матэматычных прадметаў. **Рэальная заработная плата** (спец.) — пакупная здольнасць намінальнай заработнай платы. || *наз.* **рэа́льнасць**, -і, *ж.*

**РЭАНІМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Правесці (праводзіць) рэанімацыю. *Р. арганізм.*

**РЭАНІМА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач — спецыяліст па рэанімацыі. || *прым.* **рэаніма́тарскі**, -ая, -ае (разм.).

**РЭАНІМА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Ажыўленне арганізма ў перыяд агоніі і клінічнай смерці. || *прым.* **рэанімацы́йны**, -ая, -ае. *Рэанімацыйнае аддзяленне клінікі.*

**РЭАРГАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Арганізаваць на новых пачатках, пераўтварыць (пераўтвараць). || *наз.* **рэарганіза́цыя**, -і, *ж.* || *прым.* **рэарганізацы́йны**, -ая, -ае.

**РЭАСТА́Т**, -а, *М* -ста́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыбор для рэгулявання сілы току і яго напружання. || *прым.* **рэаста́тны**, -ая, -ае.

**РЭ́БЕРНЫ** *гл.* рабро.

**РЭ́БУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Загадка, у якой слова або фраза, што трэба разгадаць, падаецца ў выглядзе камбінацыі малюнкаў, знакаў і літар. *Рашаць рэбусы. Гаварыць рэбусамі* (перан.: незразумела, з намёкамі). || *прым.* **рэ́бусны**, -ая, -ае.

**РЭВАЛЬВА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Афіцыйнае павышэнне залатога забеспячэння грашовай адзінкі краіны або фактычнае павышэнне яе валютнага курсу. || *прым.* **рэвальвацы́йны**, -ая, -ае.

**РЭВАЛЬВЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Многазарадная ручная агнястрэльная зброя з рухомым барабанным магазінам. *Страляць з рэвальвера. Спартыўны р.* || *прым.* **рэвальве́рны**, -ая, -ае. ○ **Рэвальверны станок** (спец.) — такарны або свідравальны станок з рухомай галоўкай.

**РЭВАЛЬВЕ́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Токар, які працуе на рэвальверным станку.

**РЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рэвалюцыя. **2.** Які выражае ідэі рэвалюцыі, накіраваны на ажыццяўленне рэвалюцыі. *Рэвалюцыйная барацьба. Р. рух.* **3.** Устаноўлены рэвалюцыяй, які замацоўвае яе дасягненні. *Р. ўрад. Рэвалюцыйная законнасць.* **4.** Які ўносіць рэвалюцыю (у 2 знач.) у якую-н. галіну жыцця. *Рэвалюцыйныя пераўтварэнні ў тэхніцы.* || *наз.* **рэвалюцы́йнасць**, -і, *ж.* (да 4 знач.).

**РЭВАЛЮ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Карэнны пераварот у жыцці грамадства, які прыводзіць да ліквідацыі старога грамадскага і палітычнага ладу і да перадачы ўлады ў рукі іншага класа. *Буржуазная р.* (якая звяргае буржуазны лад і ўстанаўлівае ўладу перадавога класа). *Кастрычніцкая р. 1917 г.* **2.** Карэнны пераварот, рэзкі скачкападобны пераход ад аднаго якаснага стану да другога. *Навукова-тэхнічная р.* || *прым.* **рэвалюцы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Р. час.*

**РЭВАЛЮЦЫЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Удзельнік рэвалюцыйнага руху, рэвалюцыі (у 1 знач.), прыхільнік рэвалюцыйных метадаў барацьбы, носьбіт рэвалюцыйных ідэй. *Прафесійны р.* (які прысвяціў усяго сябе рэвалюцыйнай барацьбе). **2.** Чалавек, які робіць пераварот, адкрывае новыя шляхі ў якой-н. галіне жыцця, навукі, вытворчасці. *Р. у паэзіі.* || *ж.* **рэвалюцыяне́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак.

**РЭВАЛЮЦЫЯНІЗАВА́ЦЦА**, -зу́юся, -зу́ешся, -зу́ецца; -зу́йся; *зак.* і *незак.* **1.** Прасякнуцца (прасякацца) рэвалюцыйнымі ідэямі. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Змяніцца (змяняцца) карэнным чынам. *Тэхніка рэвалюцыянізавалася.*

**РЭВАЛЮЦЫЯНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Пашырыць (пашыраць) рэвалюцыйныя ідэі сярод каго-, чаго-н. **2.** *што.* Змяніць (змяняць) карэнным чынам. *Р. спосабы вытворчасці.*

**РЭВА́НШ**, -у, *м.* Адплата за паражэнне (у вайне, у гульні). *Узяць р. Матч-р.* || *прым.* **рэва́ншны**, -ая, -ае (кніжн.).

**РЭВАНШЫ́ЗМ**, -у, *м.* Агрэсіўная палітыка рэваншу пасля паражэння ў вайне. || *прым.* **рэваншы́сцкі**, -ая, -ае.

**РЭВАНШЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік рэваншызму.

**РЭВЕ́НЬ**, -ю, *м.* Травяністая расліна сямейства грэчкавых з тоўстымі каранямі і вялікім лісцем, маладыя чаранкі якой ужываюцца ў ежу. || *прым.* **рэве́невы**, -ая, -ае.

**РЭВЕРА́НС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пачцівы паклон з прысяданнем. **2.** *перан.*, звычайна *мн.* Перабольшанае выказванне пачцівасці, угодлівасці (іран.). *Рабіць рэверансы перад кім-н.* (расшарквацца ў 2 знач.).

**РЭВІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць (рабіць) рэвізію (у 1 знач.) каго-, чаго-н. *Р. магазін.* **2.** *што.* Падвергнуць (падвяргаць) рэвізіі (у 2 знач.; кніжн.). *Р. чые-н. погляды, вучэнне.* || *зак.* таксама **абрэвізава́ць**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны (да 1 знач.).

**РЭВІ́ЗІЯ**, -і, *мн.* -і, -зій, *ж.* **1.** Абследаванне чыёй-н. дзейнасці для ўстанаўлення правільнасці і законнасці дзеянняў. *Р. магазіна.* **2.** Перагляд чаго-н. з мэтай унясення карэнных змен (кніжн.). *Р. поглядаў, вучэння.* **3.** У Расіі ў 18 — 1-й палавіне 19 ст.: перапіс падатковага насельніцтва для налічэння падатку. || *прым.* **рэвізі́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **рэві́зскі**, -ая, -ае (да 3 знач.; уст.). *Рэвізійная камісія. Рэвізскія казкі.*

**РЭВІЗІЯНІ́ЗМ**, -у, *м.* Абазначэнне ідэйна-палітычных і навуковых кірункаў, якія пераглядаюць прынцыпы і палажэнні якой-н. тэорыі, канцэпцыі, вучэння. || *прым.* **рэвізіяні́сцкі**, -ая, -ае.

**РЭВІЗІЯНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік рэвізіянізму. || *прым.* **рэвізіяні́сцкі**, -ая, -ае.

**РЭВІЗО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Службовая асоба, упаўнаважаная рабіць рэвізію (у 1 знач.). **2.** У асобных галінах чыгуначнай службы: тое, што і *кантралёр. Р. руху. Дарожны р.* || *прым.* **рэвізо́рскі**, -ая, -ае.

**РЭВЮ́**, *нескл., н.* Тэатральны агляд — прадстаўленне з паасобных сцэн, эпізодаў і нумароў. *Музычнае р.*

**РЭГА́ЛІЯ**, -і, *мн.* -і, -лій, *ж.* **1.** Прадмет, які з'яўляецца знакам манархічнай улады, напр.: карона, скіпетр (уст.). *Царскія рэгаліі.* **2.** звычайна *мн.* Ордэн, знак узнагароды (уст. *і* разм.). *Прыйсці пры ўсіх рэгаліях.*

**РЭГА́ТА**, -ы, *ДМ* -га́це, *мн.* -ы, -га́т, *ж.* Буйное спаборніцтва спартыўных суднаў. *Парусная р.*

**РЭ́ГБІ**, *нескл., н.* Спартыўная камандная гульня, якая заключаецца ў тым, што ігракі стараюцца закінуць вялікі авальны мяч у вароты саперніка або ўбегчы туды з мячом, а таксама адпаведны від спорту. || *прым.* **рэгбі́йны**, -ая, -ае.

**РЭГБІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца рэгбі.

**РЭГЕНЕРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Ператварэнне шляхам пэўных аперацый адпрацаваных прадуктаў у зыходныя прадукты для паўторнага іх выкарыстання. *Р. адпрацаваных масел.* **2.** Награванне газу і паветра, што паступаюць у печ, адпрацаванымі прадуктамі гарэння. **3.** Аднаўленне арганізмам страчаных або пашкоджаных органаў, тканак, клетак, а таксама аднаўленне цэлага арганізма з яго часткі. *Р. хваста яшчаркі.* || *прым.* **рэгенерацы́йны**, -ая, -ае *і* **рэгенераты́ўны**, -ая, -ае.

**РЭ́ГЕНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Часовы правіцель манархічнай дзяржавы. **2.** Дырыжор хору, пераважна царкоўнага. || *ж.* **рэ́гентка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (разм.). || *прым.* **рэ́генцкі**, -ая, -ае.

**РЭГІЁН**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая вобласць, група суседніх краін або тэрыторыі, раёны, аб'яднаныя па якіх-н. агульных прыметах. *Геаграфічны р. Эканамічны р.* || *прым.* **рэгіяна́льны**, -ая, -ае. *Рэгіянальнае пагадненне.*

**РЭГІ́СТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Спіс, пералік чаго-н., кніга для запісаў. **2.** Ступень вышыні голасу, музычнага інструмента. *Бас — голас нізкага рэгістра.* **3.** У некаторых музычных інструментах: група труб або група язычковых аднолькавага тэмбру. **4.** Род рэгулятара, размеркавальніка ў машынах і прыборах. *Р. каманд у ЭВМ.* **5.** Рад клавішаў у пішучай машынцы, у лічыльных і іншых машынах. *Верхні, ніжні р.* **6.** Назва дзяржаўнага органа, які ажыццяўляе нагляд над будаўніцтвам і эксплуатацыяй суднаў. *Рачны р. Марскі р.* || *прым.* **рэгі́стравы**, -ая, -ае (да 1—5 знач.).

**РЭГІСТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак., каго-што.* Запісваць, адзначаць з мэтай уліку, сістэматызацыі, надання законнай сілы чаму-н. *Р. паступаючую дакументацыю. Р. змены надвор'я. Р. шлюб.* ‖ *зак.* **зарэгістрава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. ‖ *звар.* **рэгістрава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *зак.* **зарэгістрава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся. ‖ *наз.* **рэгістра́цыя**, -і, *ж. і* **рэгістрава́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **рэгістрацы́йны**, -ая, -ае.

**РЭГІСТРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Службовая асоба, якая праводзіць рэгістрацыю каго-, чаго-н. *Р. карэспандэнцыі.* ‖ *ж.* **рэгістра́тарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **рэгістра́тарскі**, -ая, -ае.

**РЭГІСТРАТУ́РА**, -ы, *ж.* Аддзел ва ўстанове, які займаецца рэгістрацыяй каго-, чаго-н.

**РЭГІЯНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рэгіён. **2.** Мясцовы, які мае адносіны да якой-н. вобласці, рэгіёна. *Рэгіянальныя асаблівасці. Рэгіянальныя цэны.*

**РЭГЛА́МЕНТ**, -у, *М* -нце, *м.* **1.** Правілы, якія рэгулююць парадак якой-н. дзейнасці. *Трымацца рэгламенту. Р. пасяджэння. Р. работы камісіі.* **2.** Час, адведзены на сходзе для прамовы, выступлення. *Р. для прамоўцы — пятнаццаць мінут.* ‖ *прым.* **рэгла́ментны**, -ая, -ае.

**РЭГЛАМЕНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Падпарадкаваць (падпарадкоўваць) рэгламенту. ‖ *наз.* **рэгламента́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **рэгламентацы́йны**, -ая, -ае.

**РЭГЛА́Н**. **1.** -а, *м.* Адзенне, у якога рукаў складае адно цэлае з плячом. **2.** *нязм.* Пра адзенне: такога крою. *Сукенка, куртка, паліто р.*

**РЭГРЭ́С**, -у, *м.* (кніжн.). Упадак у развіцці чаго-н., рух назад; *проціл.* прагрэс.

**РЭГРЭСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* (кніжн.). Ісці па шляху рэгрэсу, пагаршэння.

**РЭГРЭСІ́ЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які з'яўляецца рэгрэсам, вядзе да рэгрэсу. *Р. працэс.* ‖ *наз.* **рэгрэсі́ўнасць**, -і, *ж.*

**РЭГУЛІРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік, спецыяліст, які займаецца рэгуліроўкай чаго-н. *Р. дарожнага руху. Р. механізмаў.* ‖ *ж.* **рэгуліро́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **рэгуліро́ўшчыцкі**, -ая, -ае.

**РЭГУЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *незак., што.* **1.** Упарадкоўваць, наладжваць. *Р. узаемаадносіны.* **2.** Накіроўваць развіццё, рух чаго-н. з мэтай прывесці ў парадак, у сістэму. *Р. дарожны рух. Р. цэны.* **3.** Прыводзіць (механізмы і іх часткі) у такі стан, які забяспечвае нармальную і правільную работу. *Р. ход машыны. Р. матор.* ‖ *зак.* **урэгулява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны (да 1 знач.), **адрэгулява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны (да 2 і 3 знач.). ‖ *наз.* **рэгулява́нне**, -я, *н.*, **рэгуля́цыя**, -і, *ж.* (да 2 знач.) *і* **рэгуліро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 3 знач.). ‖ *прым.* **рэгуляцы́йны**, -ая, -ае, **рэгуля́тарны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.) *і* **рэгуліро́вачны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.). *Рэгуляцыйныя работы. Рэгулятарныя функцыі гармонаў. Рэгуліровачны пост.*

**РЭГУЛЯ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які раўнамерна і правільна адбываецца праз пэўныя прамежкі часу. *Р. агляд. Рэгулярнае харчаванне.* **2.** Які мае правільную і пастаянную арганізацыю. *Рэгулярныя войскі.* ‖ *наз.* **рэгуля́рнасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**РЭГУЛЯ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыбор для рэгулявання чаго-н. (спец.). **2.** Тое, што рэгулюе, накіроўвае развіццё чаго-н. *Р. цэн.*

**РЭД...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. рэдакцыйны, напр.: *рэдкалегія, рэдсавет, рэдпадрыхтоўка.*

**РЭДАГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны; *незак., што.* **1.** Правяраць і выпраўляць тэкст пры падрыхтоўцы да друку. *Р. артыкул.* **2.** Кіраваць выданнем чаго-н. *Р. штогоднік.* ‖ *зак.* **адрэдагава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **рэдагава́нне**, -я, *н. і* **рэда́кцыя**, -і, *ж. Рэдагаванне тэксту. Манаграфія пад рэдакцыяй прафесара.* ‖ *прым.* **рэдакцы́йны**, -ая, -ае. *Рэдакцыйная калегія.*

**РЭДА́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які рэдагуе што-н.; спецыяліст па рэдагаванні. *Р. газеты. Адказны р. Тэхнічны р.* ‖ *ж.* **рэда́ктарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **рэда́ктарскі**, -ая, -ае.

**РЭДА́КЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** *гл.* рэдагаваць. **2.** Разнавіднасць тэксту якога-н. твора. *Раман у дзвюх рэдакцыях.* **3.** Тая ці іншая фармулёўка, выказванне думкі. *Пункт пратакола ў новай рэдакцыі.* **4.** Група работнікаў, што рэдагуюць якое-н. выданне, а таксама аддзел выдавецтва, які рыхтуе рукапісы да друку. *Галоўная р. Тэхнічная р. Р. мастацтва.* ‖ *прым.* **рэдакцы́йны**, -ая, -ае.

**РЭ́ДЗЬКА**, -і, *ДМ* рэ́дзьцы, *ж.* Караняплод з тоўстым і светлым (у цёмнай скурцы) коранем, з гаркаватым вострым смакам і пахам. ◊ **Як горкая рэдзька** (разм.) — вельмі, надта (надакучыць, абрыднуць). ‖ *прым.* **рэ́дзечны**, -ая, -ае *і* **рэ́дзькавы**, -ая, -ае.

**РЭДКАЛЕ́ССЕ**, -я, *н., зб.* Рэдкі, не густы лес.

**РЭ́ДКАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* рэдкі. **2.** Рэдкая з'ява. *Жывыя кветкі на Поўначы — вялікая р.* **3.** Рэдкі прадмет, музейная, антыкварная рэч. *Бібліяграфічная р. Калекцыя рэдкасцей.* ◊ **На рэдкасць** — аб кім-, чым-н. выключным, рэдкім. *Дні стаялі на рэдкасць халодныя.* **Не рэдкасць** — звычайна, часта бывае. *Такія выпадкі — не рэдкасць.*

**РЭ́ДКІ**, -ая, -ае; радзе́йшы, -ая, -ае. **1.** Недастаткова густы, вадзяністы. *Р. кісель. Рэдкая смятана.* **2.** Які складаецца з далёка размешчаных адзін ад аднаго частак, не густы; не шчыльны. *Рэдкая барада. Рэдкія зубы. Р. невад* (няшчыльна сплецены). **3.** Размешчаны на вялікай адлегласці адзін ад аднаго. *Рэдкія паўстанкі.* **4.** Які складаецца з аддаленых адзін ад аднаго момантаў. *Рэдкія стрэлы. Р. пульс.* **5.** Які паўтараецца, адбываецца, з'яўляецца праз вялікія прамежкі часу. *Рэдкая з'ява. Р. госць. Р. чалавек* (выдатны, выключны па сваіх якасцях). *Рэдка* (прысл.) *бачыцца. Рэдкія металы.* ‖ *наз.* **рэ́дкасць**, -і, *ж.* (да 2—4 і ў некаторых спалучэннях да 5 знач.).

**РЭДУКАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ку́ецца; *зак.* і *незак.* (спец.). Падвергнуцца (падвяргацца) рэдукцыі (у 2 знач.).

**РЭДУКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Падвергнуць (падвяргаць) рэдукцыі.

**РЭДУ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Пераход, звядзенне складанага да простага. **2.** Змяншэнне, паслабленне чаго-н. *Р. ціску пары. Р. ненаціскных галосных.* ‖ *прым.* **рэдукцы́йны**, -ая, -ае.

**РЭДУ́Т**, -а, *М* -ду́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* У старых арміях: самкнутае палявое ўмацаванне, абкружанае ровам і бруствeрам. ‖ *прым.* **рэду́тны**, -ая, -ае.

**РЭЕ́СТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вопіс, пісьмовы пералік. *Дзяржаўны суднавы р.* ‖ *прым.* **рэе́стравы**, -ая, -ае.

**РЭ́ЕЧНЫ** *гл.* рэйка[1].

**РЭЖЫ́М**, -у, *м.* **1.** Дзяржаўны лад. *Дэмакратычны р. Стары р.* **2.** Устаноўлены распарадак чаго-н. *Правільны р. харчавання. Школьны р. Р. эканоміі.* **3.** Умовы дзейнасці, працы, існавання чаго-н. *Працоўны р. машыны. Р. рэек.* ‖ *прым.* **рэжы́мны**, -ая, -ае.

**РЭЖЫСЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Творчы работнік, мастацкі арганізатар, кіраўнік тэатральнай, кіна- або тэлевізійнай пастаноўкі, наогул відовішчных праграм. *Р.-пастаноўшчык.* ‖ *прым.* **рэжысёрскі**, -ая, -ае. *Рэжысёрскае бачанне п'есы.*

**РЭЖЫСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., што* (спец.). Кіраваць пастаноўкай спектакля, фільма, увогуле відовішчнай праграмы ў якасці рэжысёра. *Р. оперу.*

**РЭЖЫСУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Прафесія, дзейнасць рэжысёра. **2.** Рэжысёрскае рашэнне (трактоўка) спектакля, фільма. *Таленавітая р. фільма.* **3.** *зб.* Рэжысёры. *Рашэнне рэжысуры.*

**РЭЗАЛЮТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які змяшчае ў сабе вывады, рэзалюцыю. *Рэзалютыўная частка даклада.*

**РЭЗАЛЮ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Пастанова, прынятая ў выніку абмеркавання якога-н. пытання. *Праект рэзалюцыі.* **2.** Пісьмовае распараджэнне, рашэнне начальніка ў форме надпісу на дзелавой паперы. *Налажыць рэзалюцыю.* ‖ *прым.* **рэзалюцы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**РЭЗАНА́НС**, -у, *м.* **1.** З'ява рэзкага ўзрастання амплітуды вымушаных ваганняў сістэмы пры набліжэнні частаты (у 2 знач.) перыядычнага знешняга ўздзеяння да частаты яе ўласных ваганняў (спец.). *Р. токаў. Аптычны р.* **2.** Здольнасць узмац-

няць гук, уласцівая рэзанатарам або памяшканням, сцены якіх добра адбіваюць гукавыя хвалі. *Кіназала дае добры р.* **3.** *перан.* Водгук, водгаласак, уражанне, зробленае на многіх. *Прамова атрымала шырокі грамадскі р.* ‖ *прым.* **рэзана́нсны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Рэзанансная елка* (для вырабу музычных інструментаў; спец.).

**РЭЗАНА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Вагальная сістэма, электрычны ланцуг, полае цела або прыстасаванне, у якіх магчыма ўзнікненне з'явы рэзанансу. ‖ *прым.* **рэзана́тарны**, -ая, -ае.

**РЭЗАНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які любіць весці доўгія разважанні павучальнага характару. **2.** Дзеючая асоба п'есы, рамана, якая звычайна выражае адносіны аўтара да падзей (спец.). ‖ *прым.* **рэзанёрскі**, -ая, -ае. *Р. тон.*

**РЭЗАНЁРСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* (кніжн.). Разважаць у павучальным тоне. ‖ *наз.* **рэзанёрства**, -а, *н.*

**РЭЗАНІ́РАВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -руе; *незак.* Знаходзіцца ў стане рэзанансу (у 1 і 2 знач.). *Струны раяля рэзаніруюць.*

**РЭ́ЗАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Парэзаны на кавалкі. *Р. сыр.* **2.** *у знач. прым.* Нанесены рэжучай зброяй. *Рэзаная рана. Крычыць як р.* (наз.; нібы яго рэжуць; разм.). **3.** *у знач. прым.* Накіраваны коса, убок (пры гульні ў тэніс, валейбол і пад.). *Р. ўдар. Р. мяч.*

**РЭ́ЗАЦЦА**, рэ́жуся, рэ́жашся, рэ́жацца; рэ́жся; *незак.* **1.** Рэзаць сябе чым-н. вострым (разм.). *Р. брытвай.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Рэзаць, рабіць балюча, муляць (разм.). *Пад кашуляй рэжацца колас.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра зубы, рогі: прараза́цца. **4.** Біцца халоднай зброяй або (перан.) моцна сварыцца (разм.). **5.** *у што.* Гуляць з азартам у якую-н. гульню (разм.). *Р. ў карты. Р. ў шашкі.*

**РЭ́ЗАЦЬ**, рэ́жу, рэ́жаш, рэ́жа; рэ́ж; рэ́заны; *незак.* **1.** *каго-што.* Раздзяляць на часткі, аддзяляць ад цэлага чым-н. вострым. *Р. нажом хлеб. Р. сала. Р. на кавалкі. Р. метал. Р. дровы* (пілаваць). *Р. камунікацыі* (перан.: перарываць, парушаць). *Р. па жывым* (таксама перан.: дзейнічаць жорстка). **2.** *каго-што.* Рабіць надрэз, разразаць, а таксама (разм.) апераваць. *Р. нарыў.* **3.** *каго (што).* Забіваць чым-н. вострым. *Р. авечку. Р. курэй. Воўк рэзаў авечак* (загрызаў; разм.). *Без нажа рэжа хто-н. каго-н.* (перан.: ставіць у цяжкае, бязвыхаднае становішча; разм.). **4.** *перан., каго-што.* Ставіць у бязвыхаднае становішча; губіць (разм.). *Р. мой праект.* **5.** *што, па чым.* Рабіць адбітак каго-, чаго-н. на паверхні чаго-н. вострым інструментам; выраблять вырэзваннем. *Р. па дрэве. Р. на медзі.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прычыняць рэзкі боль, уразацца ў цела; непрыемна дзейнічаць на вочы, слых і пад. (пра вецер, святло, гук і пад.). *Цвік рэжа ў боце нагу. Каўнер рэзаў шыю. Зыркае сонца рэзала вочы. Яго голас рэжа слых.* **7.** *безас., што.* Пра адчуванне рэзі. *Рэжа ў жываце.* **8.** *што.* Гаварыць проста, адкрыта (разм.). *Р. праўду ў вочы.* **9.** *каго (што).* Ставіць дрэнную адзнаку на экзамене (разм.). **10.** *што, у што* і *без дап.* Ужыв. замест многіх дзеясловаў для перадачы энергічнага дзеяння, якое абазначаецца гэтымі дзеясловамі (разм.). *Р. польку* (танцаваць). *Р. у карты* (гуляць). **11.** *што.* Удараць па датычнай, накіроўваючы ўбок, у косы палёт (спец.). *Р. мяч.* ‖ *зак.* **разрэ́заць**, -эжу, -эжаш, -эжа; -эж; -эзаны (да 1 і 2 знач.), **зарэ́заць**, -эжу, -эжаш, -эжа; -эж; -эзаны (да 3, 4 і 9 знач.) *і* **зрэ́заць**, -эжу, -эжаш, -эжа; -эж; -эзаны (да 9 і 11 знач.). ‖ *аднакр.* **разану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1, 6—8, 10 і 11 знач.; разм.) *і* **рэ́знуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1, 6—8, 10 і 11 знач.; разм.). ‖ *наз.* **рэ́занне**, -я, *н.* (да 1—3, 5 і 11 знач.), **рэ́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **разьба́**, -ы́, *ж.* (да 5 знач.). *Апрацоўка металаў рэзаннем. Разьба па дрэве. Рэзка хлеба.* ‖ *прым.* **рэ́зальны**, -ая, -ае (да 1 і 5 знач.; спец.) *і* **разны́**, -а́я, -о́е (да 5 знач.). *Рэзальны апарат. Разныя работы.*

**РЭ́ЗГІНЫ**, -гін. Прыстасаванне з вяровачнай сеткі, нацягнутай на сагнутыя драўляныя дужкі, у якім носяць сена, салому. ‖ *прым.* **рэ́згінны**, -ая, -ае.

**РЭЗЕДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *ж.* Садовая травяністая расліна з конусападобным пахучым суквеццем. ‖ *прым.* **рэзедо́вы**, -ая, -ае. *Сямейства рэзедовых* (наз.).

**РЭЗЕ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Аперацыя выдалення органа або часткі органа. *Р. страўніка. Р. рабра.* ‖ *прым.* **рэзекцы́йны**, -ая, -ае.

**РЭЗЕ́РВ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Запас, адкуль чэрпаюцца новыя сілы, рэсурсы. *Рэзервы вытворчасці. Выкарыстаць усе рэзервы.* **2.** Воінскія фарміраванні, прызначаныя для стварэння новых ці ўмацавання дзеючых груповак. *Адвесці дывізію ў р.* **3.** Састаў ваеннаабавязаных, што прызываюцца ў армію па мабілізацыі. ○ **Працоўныя рэзервы** — пра моладзь, якая атрымлівае ў спецыяльных навучальных установах прафесіі кваліфікаваных рабочых. ‖ *прым.* **рэзерво́вы**, -ая, -ае.

**РЭЗЕРВАВА́ЦЬ**, -рвую, -рвуеш, -рвуе; -рвуй; -рвава́ны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Захаваць (захоўваць) у рэзерве (у 1 знач.) што-н. *Р. запасы нафты. Р. сваю думку* (пакінуць за сабой права выказацца пазней). ‖ *зак.* таксама **зарэзервава́ць**, -рвую, -рвуеш, -рвуе; -рвуй; -рвава́ны.

**РЭЗЕРВА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* У ЗША і некаторых іншых краінах: тэрыторыя для пасялення абарыгенаў краіны. *Р. індзейцаў.* ‖ *прым.* **рэзервацы́йны**, -ая, -ае.

**РЭЗЕРВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* У арміях некаторых краін: ваеннаабавязаны рэзерву (у 3 знач.). *Прызыў рэзервістаў.* ‖ *прым.* **рэзервісцкі**, -ая, -ае.

**РЭЗЕРВУА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ёмішча для вадкасцей і газаў. *Шкляны, металічны р.* ‖ *прым.* **рэзервуа́рны**, -ая, -ае.

**РЭЗІДЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Прадстаўнік каланіяльнай дзяржавы ў пратэктараце. **2.** У некаторых краінах: чужаземец, які пастаянна пражывае ў дадзенай дзяржаве. **3.** Тайны прадстаўнік разведкі ў якім-н. раёне замежнай дзяржавы. ‖ *прым.* **рэзідэ́нцкі**, -ая, -ае.

**РЭЗІДЭ́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (афіц.). Месцазнаходжанне ўрада, высокапастаўленай асобы. *Летняя р. прэзідэнта.*

**РЭ́ЗКА**[1], -і, *ДМ* -зцы, *ж.* Дробна парэзаная салома; сечка.

**РЭ́ЗКА**[2] *гл.* рэзаць.

**РЭ́ЗКІ**, -ая, -ае. **1.** Які праяўляецца з вялікай сілай, вастрынёй. *Р. вецер. Рэзкія болі.* **2.** Раптоўны і вельмі значны. *Рэзкае павышэнне паспяховасці навучэнцаў. Рэзкае пахаладанне.* **3.** Занадта моцны. *Р. крык. Р. пах. Рэзкае святло.* **4.** Пазбаўлены мяккасці, плаўнасці, парывісты. *Рэзкія рухі.* **5.** Які вызначаецца выразнымі абрысамі, не расплывісты. *Рэзкія лініі. Рэзкія рысы твару.* **6.** Прамы і жорсткі, востры. *Рэзкая крытыка. Рэзкія словы. Р. соус.* ‖ *наз.* **рэ́зкасць**, -і, *ж.*

**РЭ́ЗНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* (разм.). Моцна стукнуцца аб што-н., у што-н. *Р. аб дрэва.*

**РЭ́ЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** *гл.* рэзаць. **2.** Моцна ўдарыць чым-н. *Р. калом па спіне.*

**РЭЗУЛЬТА́Т**, -у, *М* -та́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *вынік.* ‖ *прым.* **рэзульта́тны**, -ая, -ае.

**РЭЗУЛЬТАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Прадуктыўны па сваіх выніках. *Самы р. ігрок.* ‖ *наз.* **рэзультаты́ўнасць**, -і, *ж.*

**РЭ́ЗУС**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а, *мн.* -ы, -аў. Вузканосая малпа роду макак. **2.** -у. Тое, што і *рэзус-фактар* (разм.). *Адмоўны р. Дадатны р.* ‖ *прым.* **рэ́зусны**, -ая, -ае.

**РЭ́ЗУС-ФА́КТАР**, -у, *м.* (спец.). Складанае арганічнае рэчыва, якое змяшчаецца ў крыві малпаў пароды рэзус і ў людзей і абумоўлівае сумяшчальнасць і несумяшчальнасць крыві донара і таго, каму пераліваюць яго кроў, або цяжарнай жанчыны і плода.

**РЭ́ЗЧЫК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Майстар па мастацкай разьбе; разьбяр. *Р. па дрэве, па косці, па мармуру.* **2.** Рабочы, які займаецца рэзкай чаго-н. (спец.). *Р. паперы.* ‖ *ж.* **рэ́зчыца**, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **рэ́зчыцкі**, -ая, -ае.

**РЭ́ЗЧЫК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Тое, што і *разец* (у 1 знач.). ‖ *прым.* **рэ́зчыцкі**, -ая, -ае.

**РЭЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Востры рэзкі ўнутраны боль. *Рэзі ў жываце.*

**РЭЗЮМІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны *і* **РЭЗЮМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны, *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Зрабіць (рабіць) рэзюмэ, вывад са сказанага, напісанага. *Р. сваё выказванне.*

**РЭЗЮМЭ́**, *нескл., н.* (кніжн.). Кароткі вывад са сказанага, напісанага. *Р. артыкула.*

**РЭЙ.** У выразе: **весці рэй** *гл.* весці.

**РЭЙД**[1], -а, *М*-дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Водная прастора (каля марскога берага), зручная для стаянкі суднаў. *Стаяць на рэйдзе. Знешні р.* (на падыходах да порта). *Унутраны р.* (унутры порта). ‖ *прым.* **рэ́йдавы**, -ая, -ае.

**РЭЙД**[2], -у, *М*-дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Набег рухомых ваенных сіл у тыл праціўніка з мэтай ажыццяўлення баявых дзеянняў. *Р. партызанскіх атрадаў.* **2.** *перан.* Нечаканая рэвізія, праверка дзейнасці якіх-н. аб'ектаў, што праводзіцца групай актывістаў па заданні грамадскіх арганізацый. *Р. народных кантралёраў.* ‖ *прым.* **рэ́йдавы**, -ая, -ае.

**РЭ́ЙДАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ваенны карабель, які вядзе на марскіх шляхах самастойныя аперацыі па знішчэнні транспартных, гандлёвых суднаў праціўніка. ‖ *прым.* **рэ́йдарскі**, -ая, -ае.

**РЭ́ЙКА**[1], -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, рэ́ек, *ж.* **1.** Плоскі брус, вузкая тонкая дошка. **2.** Брус з дзяленнямі для вымярэння вышыні ўзроўню вады, глыбіні снегавога покрыва (спец.). ‖ *прым.* **рэ́ечны**, -ая, -ае.

**РЭ́ЙКА**[2], -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, рэ́ек, *ж.* **1.** На чыгуначным пуці: вузкі стальны брус, па якім коцяцца колы цягніка. *Мацаванне рэек да шпал.* **2.** *перан.* У некаторых спалучэннях: напрамак, шлях. *Стаць на новыя рэйкі. На рэйках інтэнсіфікацыі.* ◊ **На рэйкі** *чаго, у знач. прыназ. з Р* — на які-н. шлях, на пэўны напрамак. *Перавесці вытворчасць на рэйкі аўтаматызацыі.* ‖ *прым.* **рэ́йкавы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Рэйкавая дарога* (чыгунка). *Рэйкавая вайна* (у гады Вялікай Айчыннай вайны: дзеянні партызан, якія падрывалі варожыя цягнікі).

**РЭЙКАПРАКА́ТНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да вырабу рэек[2] (у 1 знач.) пракаткай. *Р. завод.*

**РЭЙНВЕ́ЙН**, -у, *м.* Гатунак вінаграднага віна.

**РЭЙС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Шлях транспартнага сродку (судна, самалёта, аўтамабіля) па пэўным маршруце. *Аўтобусны р. Дальнія рэйсы.* ‖ *прым.* **рэ́йсавы**, -ая, -ае.

**РЭ́ЙСАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рэйс. **2.** Пра транспартны сродак: які ходзіць па пэўных рэйсах, мае пастаянны маршрут. *Р. аўтобус. Р. самалёт.*

**РЭЙСФЕ́ДАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чарцёжны інструмент для правядзення ліній тушшу. ‖ *прым.* **рэйсфе́дарны**, -ая, -ае.

**РЭЙСШЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -шы́н, *ж.* Доўгая чарцёжная лінейка з папярочнай планкай на адным канцы для правядзення паралельных ліній.

**РЭЙТУ́ЗЫ**, -аў. **1.** Доўгія, вузкія штаны ў абцяжку (першапачаткова для верхавой язды). *Кавалерскія р.* **2.** Доўгія жаночыя або дзіцячыя вузкія трыкатажныя штаны. *Шарсцяныя р.* ‖ *прым.* **рэйту́зны**, -ая, -ае.

**РЭ́ЙТЫНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *рэйтынг-ліст* (спец.). **2.** Індывідуальны лічбавы паказчык ацэнкі папулярнасці, аўтарытэту якой-н. асобы, арганізацыі, групы, іх дзейнасці, праграм, планаў, палітыкі ў пэўны час, а таксама ўвогуле ступень папулярнасці вядомага дзеяча. *Р. кіраўніка ўрада.* ‖ *прым.* **рэ́йтынгавы**, -ая, -ае.

**РЭ́ЙТЫНГ-ЛІ́СТ**, -а, *м.* (спец.). Індывідуальны каэфіцыент ацэнкі сілы гульні гросмайстра (шахмат, шашак).

**РЭЙХСТА́Г**, -а, *м.* У Германіі да 1945 г.: назва парламента, а таксама будынак, у якім засядаў гэты парламент. *Член рэйхстага. Узняць савецкі сцяг над рэйхстагам.*

**РЭКАГНАСЦЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Зрабіць (рабіць) рэкагнасцыроўку. *Р. мясцовасць.* ‖ *прым.* **рэкагнасцыро́вачны**, -ая, -ае.

**РЭКАГНАСЦЫРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (спец.). **1.** Разведка для атрымання звестак аб праціўніку, якая праводзіцца асабіста камандзірам і афіцэрамі штабоў перад будучымі баявымі дзеяннямі. **2.** Папярэдняе абследаванне мясцовасці для геадэзічных работ. ‖ *прым.* **рэкагнасцыро́вачны**, -ая, -ае.

**РЭКАМЕНДАВА́ЦЦА**, -дуюся, -дуешся, -дуецца; -дуйся; *зак.* і *незак.* (кніжн.). Назваць (называць) сябе пры знаёмстве. *Рэкамендуюся: ваш сусед па купэ.* ‖ *зак.* таксама **адрэкамендава́цца**, -дуюся, -дуешся, -дуецца; -дуйся.

**РЭКАМЕНДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак.* і *незак.* Даць (даваць) станоўчую характарыстыку каму-, чаму-н., прапанаваць выкарыстаць, прыняць куды-н. *Р. спецыяліста. Лякарства рэкамендавана Міністэрствам аховы здароўя.* **2.** *што* і *з інф.* Параіць (раіць) што-н. (кніжн.). *Р. заняцца спортам.* **3.** *каго (што).* Назваць (называць) пры знаёмстве (уст.). *Рэкамендую вам маіх членаў сям'і.* ‖ *зак.* таксама **парэкамендава́ць**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны (да 1 знач.) *і* **адрэкамендава́ць**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й (да 1 і 3 знач.). ‖ *наз.* **рэкаменда́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **рэкамендацы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**РЭКАМЕНДАЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рэкамендаваць. **2.** Які змяшчае ў сабе рэкамендацыю (у 2 знач.). *Рэкамендацыйнае пісьмо. Р. спіс літаратуры.*

**РЭКАМЕНДА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** *гл.* рэкамендаваць. **2.** Спрыяльны водзыў пра каго-, што-н. *Атрымаць добрую рэкамендацыю ад каго-н.* **3.** Парадак, пажаданне, прапанова (кніжн.). *Выканаць рэкамендацыі камісіі.*

**РЭКАНСТРУ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Карэнная перабудова, арганізацыя чаго-н. на новых асновах. *Р. цэха.* **2.** Аднаўленне чаго-н. па апісаннях ці рэштках, якія захаваліся. *Р. тэксту старажытнага рукапісу.* ‖ *прым.* **рэканструкцы́йны**, -ая, -ае.

**РЭКАНСТРУЯВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -руе́цца; *зак.* і *незак.* Падвергнуцца (падвяргацца) рэканструкцыі.

**РЭКАНСТРУЯВА́ЦЬ**, -рую́ю, -рую́еш, -рую́е; -руй́; -руява́ны; *зак.* і *незак., што.* Правесці (праводзіць) рэканструкцыю чаго-н. *Р. абсталяванне цэха. Р. помнікі архітэктуры.* ‖ *прым.* **рэканструкцы́йны**, -ая, -ае.

**РЭКАРДСМЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які ўстанавіў рэкорд. ‖ *ж.* **рэкардсме́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **рэкардсме́нскі**, -ая, -ае.

**РЭКАРДЫ́СТ**, -а, *М*-сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *рэкардсмен* (уст.). **2.** Свойская жывёліна, якая па сваіх якасцях вызначаецца рэкорднымі паказчыкамі. *Бык-р.* ‖ *ж.* **рэкарды́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**РЭ́КВІЕМ**, -а, *м.* **1.** У католікаў: набажэнства па нябожчыку. **2.** Жалобны вакальны або вакальна-інструментальны музычны твор. *Р. Моцарта.*

**РЭКВІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што* (спец.). Адабраць (адбіраць) у прымусовым парадку на карысць дзяржавы ці на ваенныя патрэбы. ‖ *наз.* **рэквізі́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **рэквізіцы́йны**, -ая, -ае.

**РЭКВІЗІ́Т**, -у, *М* -зі́це, *м.* (спец.). **1.** Сукупнасць сапраўдных або бутафорскіх прадметаў для тэатральнай пастаноўкі. **2.** звычайна *мн.* -ы, -аў. У афіцыйным дакуменце: звесткі, якія абавязкова ўваходзяць у яго. ‖ *прым.* **рэквізі́тны**, -ая, -ае.

**РЭ́КЕТ**, -у, *М*-кеце, *м.* (спец.). Злачыннае (шляхам пагроз, шантажу) вымаганне ў каго-н. грошай, каштоўнасцей і пад.

**РЭКЕЦІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца рэкетам. ‖ *прым.* **рэкеці́рскі**, -ая, -ае.

**РЭКЛА́МА**, -ы, *ж.* **1.** Апавяшчэнне рознымі спосабамі для стварэння шырокай вядомасці, прыцягнення спажыўцоў, гледачоў. *Гандлёвая р. Шырокавяшчальная р. Зрабіць рэкламу каму-н.* (перан.: занадта расхваліць, разрэкламаваць). **2.** Аб'ява з такім апавяшчэннем. *Светлавая р.* ‖ *прым.* **рэкла́мны**, -ая, -ае. *Р. характар артыкула* (перан.: які рэкламуе што-н., хвалебны).

**РЭКЛАМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* **1.** Аб'явіць (аб'яўляць) пра каго-, што-н., карыстаючыся рэкламай. *Р. новую кнігу.* **2.** *перан.* Тое, што і *расхваліць* (разм.). *Р. свае поспехі.* ‖ *наз.* **рэкламава́нне**, -я, *н.*

**РЭКЛАМА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). Прэтэнзія на нізкую якасць тавараў з патрабаваннем пакрыцця страт. *На завод ідуць рэкламацыі.* ‖ *прым.* **рэкламацы́йны**, -ая, -ае.

**РЭКЛАМІ́СТ**, -а, *М*-сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто афармляе, робіць рэкламы. ‖ *ж.* **рэкламі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**РЭ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак., што* і *без дап.* (разм.). Сказаць што-н.,

абзацца. *Р. слоўца* (неабдумана, неасцярожна сказаць што-н.).

**РЭКО́РД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Найлепшы вынік, дасягнуты ў працы, спорце. *Устанавіць сусветны р. Пабіць чый-н. р. Р. трываласці* (перан.: вышэйшая ступень трываласці).

**РЭКО́РДНЫ**, -ая, -ае. Які з'яўляецца рэкордам, найвышэйшы. *Рэкордныя вынікі. Р. ўраджай. Закончыць работу ў рэкордна* (прысл.) *кароткі тэрмін.*

**РЭ́КРУТ**, -а, *М* -руце, *мн.* -ы, -аў, *м.* У Расіі з 1705 па 1874 г.: салдат-навабранец. *Здаць у рэкруты* (па воінскім абавязку). *Пайсці ў рэкруты* (па найме). ‖ *прым.* **рэкру́цкі**, -ая, -ае. *Рэкруцкая павіннасць.*

**РЭКРУ́ТЧЫНА**, -ы, *ж.* У Расіі з 1705 па 1874 г.: рэкруцкая воінская павіннасць.

**РЭКРЭА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Адпачынак, аднаўленне сіл пасля працы. ‖ *прым.* **рэкрэацы́йны**, -ая, -ае. *Рэкрэацыйная зала* (у навучальнай установе; уст.). *Р. лес* (прызначаны для адпачынку, аднаўлення сіл).

**РЭ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кіраўнік універсітэта і некаторых іншых вышэйшых навучальных устаноў. ‖ *прым.* **рэ́ктарскі**, -ая, -ае.

**РЭКТАРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адміністрацыйны орган, які ўзначальваецца рэктарам. *Пасяджэнне рэктарата.* **2.** Памяшканне, дзе знаходзіцца гэты орган. ‖ *прым.* **рэктара́тны**, -ая, -ае.

**РЭКТЫФІКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Ачысціць (ачышчаць) (вадкасць) перагонкай. *Р. спірт.* ‖ *наз.* **рэктыфіка́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **рэктыфікацы́йны**, -ая, -ае.

**РЭКТЫФІКА́Т**, -у, *М* -ка́це, *м.* (спец.). Прадукт рэктыфікацыі. ‖ *прым.* **рэктыфіка́тны**, -ая, -ае.

**РЭЛЕ́**, *нескл., н.* (спец.). Аўтаматычны механізм для замыкання і размыкання электрычнага ланцуга. *Электрамагнітнае р.* ‖ *прым.* **рэле́йны**, -ая, -ае.

**РЭЛІГІ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рэлігія. **2.** Які верыць у Бога, набожны. *Р. чалавек.* ‖ *наз.* **рэлігі́йнасць**, -і, *ж.*

**РЭЛІ́ГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Адна з форм грамадскай свядомасці — сукупнасць духоўных уяўленняў, што грунтуюцца на веры ў звышнатуральныя сілы і істоты (багоў, духаў), якія з'яўляюцца прадметам пакланення. **2.** *мн.* -і, -гій. Адзін з напрамкаў такой грамадскай свядомасці. *Сусветныя рэлігіі* (будызм, іслам, хрысціянства). ‖ *прым.* **рэлігі́йны**, -ая, -ае.

**РЭЛІГІЯЗНА́ВЕЦ**, -на́ўца, *мн.* -на́ўцы, -на́ўцаў, *м.* Спецыяліст па рэлігіязнаўстве.

**РЭЛІГІЯЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Навука, якая займаецца вывучэннем рэлігій. ‖ *прым.* **рэлігіязна́ўчы**, -ая, -ае.

**РЭЛІ́КВІЯ**, -і, *мн.* -і, -вій, *ж.* Рэч, якая беражліва захоўваецца як памяць пра мінулае. *Сямейныя рэліквіі. Франтавая р.* ‖ *прым.* **рэлі́квійны**, -ая, -ае (спец.). *Рэліквійныя экспанаты музея.*

**РЭЛІ́КТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Жывёльны або раслінны арганізм, які захаваўся як перажытак старажытных эпох. ‖ *прым.* **рэлі́ктавы**, -ая, -ае. *Рэліктавая расліна.*

**РЭЛЬЕ́Ф**, -у, *м.* **1.** Будова зямной паверхні, сукупнасць няроўнасцей сушы, акіянскага і марскога дна. *Р. мясцовасці. Гарысты р.* **2.** Выпукласць, выпуклы відарыс на плоскасці. *Мэбля з рэльефамі і драўлянай мазаікай.* **3.** Від скульптуры, у якім відарыс з'яўляецца выпуклым або ўвагнутым у адносінах да плоскасці фону (спец.). ‖ *прым.* **рэлье́фны**, -ая, -ае.

**РЭЛЬЕ́ФНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* рэльеф. **2.** Выпуклы, які выступае над паверхняй. *Рэльефная карта.* **3.** *перан.* Выразны, ясны (кніжн.). *Рэльефная мова.* ‖ *наз.* **рэлье́фнасць**, -і, *ж.*

**РЭЛЯТЫВІ́ЗМ**, -у, *м.* У філасофіі: метадалагічная пазіцыя, прыхільнікі якой, абсалютызуючы адноснасць і ўмоўнасць усіх нашых ведаў, адмаўляюць магчымасць аб'ектыўнага пазнання рэчаіснасці. ‖ *прым.* **рэлятыві́сцкі**, -ая, -ае.

**РЭЛЯТЫВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік, прыхільнік рэлятывізму. ‖ *ж.* **рэлятыві́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **рэлятыві́сцкі**, -ая, -ае.

**РЭЛЯТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Тое, што і *адносны* (у 1 знач.). ‖ *наз.* **рэляты́ўнасць**, -і, *ж.*

**РЭЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (уст.). Пісьмовае данясенне аб дзеяннях войск. *Пераможныя рэляцыі* (таксама перан.: шумныя паведамленні пра поспехі; іран.).

**РЭМА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Заўвага; памета на палях (рукапісу, кнігі; уст.). *Рэмаркі на палях рукапісу.* **2.** У п'есе: тлумачэнне аўтара да тэксту, якое датычыць абставін дзеяння, знешняга выгляду ці паводзін персанажа. ‖ *прым.* **рэма́рачны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**РЭ́МЕЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сініца, якая жыве па берагах вадаёмаў.

**РЭ́МЕНЬ**, -меня *і* **РАМЕ́НЬ**, -мяня́, *мн.* рамяні́, рамянёў, *м.* **1.** Доўгая паласа вырабленай скуры, моцнай тканіны, якая ўжыв. для звязвання, замацавання чаго-н., у якасці пояса, для перадачы руху ад шківа. *Сумка на рэмені. Падперазацца рэменем. Р. для вастрэння брытваў. Прывадны р. Прывязныя рамяні* (у самалёце, аўтамашыне). **2.** *мн.* Дзве злучаныя перамычкай палоскі скуры (або моцнай тканіны, заменніка) са спражкамі і ручкай для ўвязвання і пераноскі ручнога багажу. *Перавязаць клунак рамянямі.* ‖ *памянш.* **раме́ньчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **раме́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Раменная вупраж. Раменная пуга. Раменная перадача.*

**РЭМІЛІТАРЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Зноў стварыць (ствараць) дзе-н. армію, ваенную прамысловасць пасля ранейшай дэмілітарызацыі. ‖ *наз.* **рэмілітарыза́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **рэмілітарызацы́йны**, -ая, -ае.

**РЭМІНІСЦЭ́НЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). **1.** Няясныя ўспаміны. *Р. далёкага мінулага.* **2.** Адбітак уплыву чыёй-н. творчасці ў мастацкім творы. *Рэмінісцэнцыі рамантызму.*

**РЭНАМЭ́**, *нескл., н., каго* (уст. *і* кніжн.). Усталяваная рэпутацыя, агульная павага. *Захаваць сваё р. Р. добрага чалавека.*

**РЭНЕГА́Т**, -а, *М* -га́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн., пагард.). Адступнік, здраднік. ‖ *ж.* **рэнега́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **рэнега́цкі**, -ая, -ае. *Р. ўчынак.*

**РЭНЕГА́ЦТВА**, -а, *н.* (кніжн., пагард.). Адступніцтва, паводзіны рэнегата.

**РЭНЕСА́НС**, -у, *м.* (з вялікай літары). Эпоха росквіту навук і мастацтваў у Еўропе, якая прыйшла на змену Сярэдневякоўю і абвясціла зварот да чалавека як да вышэйшага пачатку быцця; Адраджэнне. ‖ *прым.* **рэнеса́нсны**, -ая, -ае.

**РЭНКЛО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Гатунак буйных круглых салодкіх сліў. ‖ *прым.* **рэнкло́дны**, -ая, -ае *і* **рэнкло́давы**, -ая, -ае.

**РЭ́НТА**, -ы, *ДМ* -нце, *мн.* -ы, рэнт *і* -аў, *ж.* Рэгулярны даход у форме працэнтаў (у 3 знач.), які атрымліваецца з капіталу, маёмасці або зямлі. *Зямельная р. Дыферынцыяльная р.* ‖ *прым.* **рэ́нтавы**, -ая, -ае. *Р. даход.*

**РЭНТА́БЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Даходны, прыбытковы, які апраўдвае расходы. *Рэнтабельная гаспадарка. Рэнтабельнае прадпрыемства.* ‖ *наз.* **рэнта́бельнасць**, -і, *ж.*

**РЭНТГЕ́Н**[1], -у, *м.* Прамяні, прасвечванне рэнтгенаўскімі прамянямі. *Назначыць хворага на р.*

**РЭНТГЕ́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў *і* пры падліку пераважна рэнтге́н, *м.* **1.** Апарат для прасвечвання. *Р. паказаў змены касцявой тканкі. Уключыць р.* **2.** Пазасістэмная адзінка вымярэння дозы рэнтгенаўскага ці гама-выпрамяненняў. *Узровень радыяцыі склаў трыццаць рэнтгенаў у гадзіну.*

**РЭНТГЕНА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да рэнтгену (у 1 знач.), да рэнтгенаўскіх прамянёў, напр.: *рэнтгенаабсталяванне, рэнтгенаадчувальны, рэнтгенаапаратура, рэнтгеналагічны, рэнтгенапалеанталогія, рэнтгенаструктурны, рэнтгенатэрапія.*

**РЭНТГЕНАГРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́м, *ж.* Фатаграфічны здымак, зроблены пры дапамозе рэнтгенаўскіх прамянёў.

**РЭНТГЕНАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Фатаграфаванне ўнутранай будовы непразрыстых прадметаў пры дапамозе рэнтгенаўскіх прамянёў. ‖ *прым.* **рэнтгенаграфі́чны**, -ая, -ае.

**РЭНТГЕНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які займаецца вывучэннем прымянення рэнтгенаўскіх прамянёў для даследавання ўнутраных органаў, для дыягностыкі захворванняў і іх лячэння. ‖ *прым.* **рэнтгеналагі́чны**, -ая, -ае.

**РЭНТГЕНАСКАПІ́Я**, -і, *ж.* Прасвечванне рэнтгенаўскімі прамянямі непраз-

рыстых прадметаў і даследаванне іх ценявога адбітка. || *прым.* **рэнтгенаскапі́чны**, -ая, -ае.

**РЭНТГЕНАТЭРАПІ́Я**, -і, *ж.* Лячэнне рэнтгенаўскімі прамянямі. || *прым.* **рэнтгенатэрапеўты́чны**, -ая, -ае.

**РЭНТГЕ́НАЎ.** У выразе: **рэнтгенавы прамяні** — тое, што і рэнтгенаўскія прамяні.

**РЭНТГЕ́НАЎСКІ**, -ая, -ае. **1.** У выразе: **рэнтгенаўскія прамяні** — нябачныя прамяні, што з'яўляюцца кароткімі электрамагнітнымі хвалямі, якія здольны пранікаць праз непразрыстыя прадметы. **2.** Які мае адносіны да прымянення такіх прамянёў. *Р. здымак. Рэнтгенаўская апаратура.*

**РЭНТГЕНО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач — спецыяліст па рэнтгеналогіі і рэнтгенатэрапіі.

**РЭ́ПА**, -ы, *ж.* Караняплод з акруглым коранем светла-жоўтага колеру. *Кармавая р.* || *памянш.* **рэ́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* || *прым.* **рэ́пны**, -ая, -ае *і* **рэ́павы**, -ая, -ае. *Рэпнае поле. Рэпавае лісце.*

**РЭПАРА́ЦЫІ**, -цый, *адз.* -ыя, -і, *ж.* (спец.). Выплата дзяржавай, якая распачала вайну, дзяржавам, што панеслі страты ў гэтай вайне, грошай або іншага віду кампенсацы. || *прым.* **рэпарацы́йны**, -ая, -ае.

**РЭПАРТА́Ж**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паведамленне пра мясцовыя падзеі, пра падзеі дня, інфармацыя (па радыё, тэлебачанні, у друку). *Р. з выставачнай залы. Р. з месца здарэння.* || *прым.* **рэпарта́жны**, -ая, -ае.

**РЭПАРЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Карэспандэнт, які піша рэпартажы. || *ж.* **рэпарцёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). || *прым.* **рэпарцёрскі**, -ая, -ае.

**РЭПАРЦЁРСТВА**, -а, *н.* Работа, дзейнасць рэпарцёра. *Займацца рэпарцёрствам.*

**РЭПАТРЫІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго (што)* (кніжн.). Вярнуць (вяртаць) на радзіму ваеннапалонных, грамадзянскіх асоб, бежанцаў, эмігрантаў. || *наз.* **рэпатрыя́цыя**, -і, *ж.* || *прым.* **рэпатрыяцы́йны**, -ая, -ае.

**РЭПАТРЫЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Асоба, якая падвяргалася рэпатрыяцыі. || *ж.* **рэпатрыя́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **рэпатрыя́нцкі**, -ая, -ае.

**РЭ́ПАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* (разм.). Трэскацца, лопацца. *Ад сівеpy рэпаецца скура.* || *зак.* **пара́пацца**, -аецца.

**РЭПЕРТУА́Р**, -у, *м.* **1.** Сукупнасць п'ес, музычных і іншых твораў, якія ідуць у тэатры, у кіно, выконваюцца ў канцэртных залах, на эстрадзе, у цырку. *Песенны р. канцэрта. Небагаты р. слоў.* **2.** Сукупнасць тэатральных роляў, музычных твораў, якія выконваюцца кім-н. *Р. дэкламатара. У сваім рэпертуары хто-н.* (таксама перан.: як уласціва каму-н., як заўсёды робіць хто-н.; іран.). || *прым.* **рэпертуа́рны**, -ая, -ае.

**РЭПЕТЫ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Настаўнік, звычайна дамашні, які рэпеціруе (у 2 знач.) каго-н. **2.** Вопытны спецыяліст, які праводзіць групавыя ці індывідуальныя рэпетыцыі з акцёрамі. *Р. па вакале. Р. па балеце.* || *ж.* **рэпеты́тарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). || *прым.* **рэпеты́тарскі**, -ая, -ае.

**РЭПЕТЫ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Папярэдняе выкананне спектакля, якога-н. відовішчнага мерапрыемства ў час іх падрыхтоўкі. *Р. п'есы. Р. парада. Генеральная р.* || *прым.* **рэпетыцы́йны**, -ая, -ае.

**РЭПЕЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак.* **1.** *што.* Праводзіць рэпетыцыю чаго-н., развучваць. *Р. п'есу. Р. ролю.* **2.** *каго (што).* Дапамагаць каму-н. у праходжанні вучэбнага курса, у вучэнні. *Р. вучня.* || *зак.* **адрэпеці́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны (да 1 знач.) *і* **прарэпеці́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны (да 1 знач.; спец.).

**РЭ́ПІЦА**, -ы, *ж.* У пазваночных жывёлін: канцавая частка пазваночніка, якая выступае каля хваста. || *прым.* **рэ́пічны**, -ая, -ае.

**РЭ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* **1.** *гл.* рэпа. **2.** Надкаленная косць.

**РЭ́ПЛІКА**, -і, *ДМ* -ліцы, *мн.* -і, -лік, *ж.* **1.** Адказ, пярэчанне, заўвага на словы суразмоўца, таго, хто гаворыць. *Кінуць рэпліку. Рэплікі з месцаў* (на сходзе). *Калючая р. Абмен рэплікамі.* **2.** У сцэнічным дыялогу: тэкст, які змяшчае ў сабе словы адной з дзеючых асоб. **3.** На судовым працэсе: пярэчанне адной са старон (спец.). **4.** Кароткі газетны або часопісны артыкул як пярэчанне, выражэнне нязгоды з кім-, чым-н.

**РЭПРАДУ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У радыёвяшчанні: гучнагаварыцель. || *прым.* **рэпраду́ктарны**, -ая, -ае.

**РЭПРАДУ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Узнаўленне карцін, малюнкаў, чарцяжоў шляхам фатаграфіі, клішэ (спец.). **2.** *мн.* -і, -цый. Перадрукаваны малюнак, карціна ці фотаздымак. *Яркія рэпрадукцыі.* **3.** Узнаўленне, размнажэнне племяннoй жывёлы ці гатунковага насення (спец.). *Высокая р. насення пшаніцы.* || *прым.* **рэпрадукты́ўны**, -ая, -ае (да 3 знач.; спец.) *і* **рэпрадукцы́йны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.; спец.).

**РЭПРЭЗЕНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго-што* (кніжн.). Прадставіць (прадстаўляць), выявіць (выяўляць), паказаць (паказваць). || *наз.* **рэпрэзента́цыя**, -і, *ж.*

**РЭПРЭСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго (што).* Падвергнуць (падвяргаць) рэпрэсіі, рэпрэсіям.

**РЭПРЭ́СІЯ**, -і, звычайна *мн.* -і, -сій, *ж.* Карная мера з боку дзяржаўных органаў. *Падвяргацца рэпрэсіям. Ахвяры рэпрэсій.* || *прым.* **рэпрэсі́ўны**, -ая, -ае. *Рэпрэсіўныя меры.*

**РЭПТЫ́ЛІЯ**, -і, *мн.* -і, -лій, *ж.* (спец.). Тое, што і *паўзун* (у 3 знач.).

**РЭПУТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Грамадская ацэнка, якая склалася пра каго-н., агульная думка пра якасці, заслугі і недахопы каго-, чаго-н. *Добрая, дрэнная р. Ганьбаваць чыю-н. рэпутацыю.*

**РЭ́ПЧАТЫ**, -ая, -ае. Па форме падобны на рэпу. *Рэпчатая цыбуля.*

**РЭСКРЫ́ПТ**, -а, *М* -пце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Пісьмо манарха да падначаленага з якім-н. прадпісаннем, аб'явай аб узнагародзе, з выражэннем падзякі. *Імператарскі р.*

**РЭСПАНДЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (афіц.). Асоба, якая адказвае на пытанні анкеты або дае інтэрв'ю. || *прым.* **рэспандэ́нцкі**, -ая, -ае.

**РЭСПЕКТА́БЕЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Паважаны, шаноўны, самавіты. *Рэспектабельная фірма.* || *наз.* **рэспекта́бельнасць**, -і, *ж.*

**РЭСПІРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прылада для аховы органаў дыхання (а таксама вачэй, вушэй) ад пылу, шкодных газаў. *Пылаахоўны р.* || *прым.* **рэспіра́тарны**, -ая, -ае.

**РЭСПІРАТО́РНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае адносіны да дыхальных шляхоў, да дыхання. *Вострае рэспіраторнае захворванне* (інфекцыйнае захворванне дыхальных шляхоў).

**РЭСПУ́БЛІКА**, -і, *ДМ* -ліцы, *мн.* -і, -лік, *ж.* **1.** Форма дзяржаўнага кіравання, пры якой усе вышэйшыя органы ўлады выбіраюцца або фарміруюцца агульнанацыянальнымі прадстаўнічымі ўстановамі. *Прэзідэнцкая р.* (калі на чале дзяржавы стаіць выбраны шляхам прамых або ўскосных выбараў прэзідэнт, які з'яўляецца і кіраўніком урада). *Парламенцкая р.* (калі ў дзяржаве вяршэнствуе парламент). **2.** Дзяржава з выбранымі на пэўны тэрмін органамі ўлады. || *прым.* **рэспубліка́нскі**, -ая, -ае. *Рэспубліканская канферэнцыя.*

**РЭСПУБЛІКА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* **1.** Прыхільнік рэспубліканскага ладу. **2.** Член рэспубліканскай партыі. || *ж.* **рэспубліка́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**РЭСТАРА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гандлёвая ўстанова, дзе можна смачна пад'есці і прыемна правесці час (іншы раз з музыкай, танцамі і пад.). *Першакласны р. Заказаць столік у рэстаране.* || *прым.* **рэстара́нны**, -ая, -ае. *Рэстаранныя цэны.*

**РЭСТАЎРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па рэстаўрацыі прадметаў мастацтва, старых помнікаў. *Мастак-р. Архітэктар-р.* **2.** Прыхільнік рэстаўрацыі (у 2 знач.). || *прым.* **рэстаўра́тарскі**, -ая, -ае.

**РЭСТАЎРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Аднаўленне і ўмацаванне старых ці пашкоджаных помнікаў мастацтва, гісторыі і культуры. **2.** Аднаўленне ранейшага палітычнага ладу (кніжн.). || *прым.* **рэстаўрацы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **рэстаўра́тарскі**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Рэстаўрацыйная майстэрня.*

**РЭСТАЎРЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.*

Падвергнуць (падвяргаць) рэстаўрацыі. ‖ *зак.* **адрэстаўрыраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны (паводле 1 знач. наз. рэстаўрацыя).

**РЭСУ́РС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *мн.* Запасы, крыніцы чаго-н. *Харчовыя рэсурсы. Прыродныя рэсурсы. Працоўныя рэсурсы* (частка насельніцтва краіны, здольная да працы). **2.** Сродак, да якога звяртаюцца ў неабходным выпадку (кніжн.). *Выкарыстаць апошні р.* **3.** Тэхнічныя магчымасці чаго-н. (спец.). *Р. самалёта.* ‖ *прым.* **рэсу́рсны**, -ая, -ае.

**РЭСУРСАЗБЕРАЖЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (спец.). Скарачэнне: зберажэнне рэсурсаў.

**РЭТО́РТА**, -ы, *ДМ* -рце, *мн.* -ы, -то́рт *і* -аў, *ж.* (спец.). Лабараторная пасудзіна з доўгім выгнутым горлам, якая выкарыстоўваецца часцей для перагонкі вадкасцей. ‖ *прым.* **рэто́ртны**, -ая, -ае.

**РЭ́ТРА**. **1.** *нескл., н.* Усё старадаўняе, што ўзнаўляе старое, мінулае. *Мода на р.* **2.** *нязм.* Стары, старадаўні, які ўзнаўляе старадаўнасць, даўніну. *Танцы ў стылі р. Абсталяванне ў стылі р.*

**РЭТРАГРА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Праціўнік прагрэсу, рэакцыянер. ‖ *ж.* **рэтрагра́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак. ‖ *прым.* **рэтрагра́дскі**, -ая, -ае.

**РЭТРАГРА́ДНЫ**, -ая, -ае. Рэакцыйны, адсталы. *Рэтраградныя погляды.* ‖ *наз.* **рэтрагра́днасць**, -і, *ж.*

**РЭТРАНСЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Прыём і перадача радыё- або тэлевізійнай праграмы цераз прамежкавы пункт. ‖ *прым.* **рэтрансляцы́йны**, -ая, -ае.

**РЭТРАСПЕКТЫ́ВА**, -ы, *ж.* (кніжн.). Погляд у мінулае, агляд таго, што было ў мінулым.

**РЭТРАСПЕКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Звернуты да мінулага, у рэтраспектыву. *Р. погляд. Р. паказ фільмаў.* ‖ *наз.* **рэтраспекты́ўнасць**, -і, *ж.*

**РЭ́ТУШ**, -ы, *ж.* Выпраўленне малюнка, адбітка на фатаграфічных негатывах і здымках, іх спецыяльная апрацоўка для паляпшэння пры друкаванні.

**РЭТУШАВА́ЦЬ**, -шу́ю, -шу́еш, -шу́е; -шу́й; -шава́ны; *зак.* і *незак., што.* Апрацаваць (апрацоўваць) рэтушшу. ‖ *зак.* таксама **адрэтушава́ць**, -шу́ю, -шу́еш, -шу́е; -шу́й; -шава́ны. ‖ *наз.* **рэтушава́нне**, -я, *н.* *і* **рэтушо́ўка**, -і, *ДМ* -шо́ўцы, *ж.*

**РЭТУШО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па рэтушаванні. ‖ *прым.* **рэтушо́рскі**, -ая, -ае.

**РЭЎКА́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: рэвалюцыйны камітэт — часовы надзвычайны орган савецкай улады ў час Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі (1918—1920 гг.). ‖ *прым.* **рэўка́маўскі**, -ая, -ая (разм.).

**РЭЎМАРКАРДЫ́Т**, -у, *М* -ды́це, *м.* Запаленчае паражэнне сэрца пры рэўматызме.

**РЭЎМАТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які вывучае рэўматызм і займаецца яго лячэннем. ‖ *прым.* **рэўматалагі́чны**, -ая, -ае.

**РЭЎМАТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач — спецыяліст па рэўматалогіі.

**РЭЎМАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Інфекцыйна-алергічная хвароба з паражэннем суставаў, сардэчна-сасудзістай сістэмы, якая звычайна суправаджаецца вострым болем. *Застарэлы р.* ‖ *прым.* **рэўматы́чны**, -ая, -ае *і* **рэўматоі́дны**, -ая, -ае.

**РЭЎМА́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, хворы на рэўматызм. ‖ *ж.* **рэўматы́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (разм.).

**РЭ́ЎНАСЦЬ**, -і, *ж.* Пакутлівае сумненне ў чыёй-н. вернасці, каханні. *Пачуццё рэўнасці.*

**РЭФАРМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́ем, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак.* і *незак., што.* Змяніць (змяняць) шляхам рэформ. *Р. грашовую сістэму.* ‖ *наз.* **рэфармава́нне**, -я, *н.*

**РЭФАРМА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які ажыццяўляе рэформу чаго-н., пераўтваральнік у якой-н. галіне. ‖ *прым.* **рэфарма́тарскі**, -ая, -ае.

**РЭФАРМІ́ЗМ**, -у, *м.* Палітычная плынь у рабочым руху, якая падмяняе класавую рэвалюцыйную барацьбу палітыкай сацыяльных рэформ. ‖ *прым.* **рэфармі́сцкі**, -ая, -ае.

**РЭФАРМІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Прыхільнік рэфармізму. ‖ *ж.* **рэфармі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, так.

**РЭФЕРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кароткі выклад зместу кнігі, артыкула, даследавання, а таксама даклад з такім выкладам. ‖ *прым.* **рэфера́тны**, -ая, -ае *і* **рэфераты́ўны**, -ая, -ае. *Рэфератыўны часопіс* (які друкуе рэфераты навуковых публікацый).

**РЭ́ФЕРЫ**, *нескл., м.* У некаторых спартыўных спаборніцтвах: тое, што і *суддзя* (у 2 знач.).

**РЭФЕРЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Зрабіць (рабіць) рэферат чаго-н. *Р. кнігу.* ‖ *зак.* таксама **прарэферы́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны.

**РЭФЕРЭ́НДУМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Усенароднае галасаванне, апытанне пры вырашэнні важнага дзяржаўнага пытання. *Правесці р.*

**РЭФЕРЭ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Службовая асоба, якая з'яўляецца дакладчыкам і кансультантам па пэўных пытаннях. *Р. прэзідэнта.* ‖ *прым.* **рэферэ́нцкі**, -ая, -ае.

**РЭФЛЕ́КС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Міжвольная рэакцыя арганізма на знешнія або ўнутраныя раздражняльнікі. *Рэфлексы галаўнога мозга. Безумоўны р.* (прыроджаны). *Умоўны р.* (набыты ў выніку неаднаразовага ўздзеяння раздражняльнікаў). ‖ *прым.* **рэфлекто́рны**, -ая, -ае *і* **рэфлекты́ўны**, -ая, -ае. *Рэфлекторная рэакцыя. Рэфлектыўныя рухі.*

**РЭФЛЕ́КСІЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Роздум пра свой унутраны стан, самааналіз. *Схільнасць да рэфлексіі.* ‖ *прым.* **рэфлексі́йны**, -ая, -ае.

**РЭФЛЕ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тэлескоп з увагнутым люстрам або сістэмай люстраў. **2.** Адбівальнік прамянёў у форме ўвагнутай паліраванай паверхні. *Лямпа з рэфлектарам.* ‖ *прым.* **рэфле́ктарны**, -ая, -ае.

**РЭФЛЕКТО́РНЫ** *гл.* рэфлекс.

**РЭФЛЕКТЫ́ЎНЫ** *гл.* рэфлекс.

**РЭФО́РМА**, -ы, *мн.* -ы, -фо́рм *і* -аў, *ж.* **1.** Пераўтварэнне, змена, перабудова чаго-н. *Р. адукацыі. Р. правапісу. Грашовая р.* **2.** Пераўтварэнне ў якой-н. галіне палітычнага жыцця, якое не датычыць асноў існуючага сацыяльнага ладу. *Палітычныя рэформы.* ‖ *прым.* **рэфо́рменны**, -ая, -ае (да 2 знач.; уст.).

**РЭФРА́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Тэлескоп з лінзавым аб'ектывам. ‖ *прым.* **рэфра́ктарны**, -ая, -ае.

**РЭФРА́КЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Пераламленне светлавога праменя ў атмасферы, а таксама змена напрамку гукавых ваганняў з-за неаднароднасці асяроддзя. *Р. святла. Р. гука.* ‖ *прым.* **рэфракцы́йны**, -ая, -ае. *Рэфракцыйная з'ява.*

**РЭФРЫЖЭРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Частка халадзільнай машыны, у якой за кошт выпарэння вадкасці падтрымліваецца нізкая тэмпература, ахаладжальнік. **2.** Судна, вагон або аўтамабіль, забяспечаныя халадзільнымі ўстаноўкамі. ‖ *прым.* **рэфрыжэра́тарны**, -ая, -ае.

**РЭФРЭ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Радок або страфа, якія ў пэўным парадку паўтараюцца ў вершы. **2.** Тэма музычнага твора, якая шматкратна паўтараецца і змацоўвае яго будову. ‖ *прым.* **рэфрэ́нны**, -ая, -ае.

**РЭ́ХА**, -а, *н.* **1.** Адбіццё гуку ад прадметаў; водгук. *Лясное р. Р. мінулых падзей* (перан.: водгалас). **2.** Электрамагнітная хваля, адбітая ад якой-н. перашкоды і прынятая спецыяльным прыборам (спец.).

**РЭХА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да рэха (у 2 знач.), напр.: *рэхадальнамер, рэхазапіс, рэхакардыяграма, рэхалакатар, рэхалакацыйны, рэхалот, рэхапеленг, рэхарэзанатар, рэхасігнал, рэхахваля.*

**РЭХАЛО́Т**, -а, *М* -ло́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння глыбіні вады электраакустычным метадам. ‖ *прым.* **рэхало́тны**, -ая, -ае. *Р. прамер марскога дна.*

**РЭ́ХВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (абл.). Жалезны абруч, што наганяецца на драўляную калодку кола, у якой знаходзяцца спіцы. ‖ *прым.* **рэ́хвенны**, -ая, -ае.

**РЭЦІРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *зак.* і *незак.* (уст. *і* іран.). Адысці (адыходзіць), пайсці (ісці) незаўважна або скрытна. *Своечасова р.*

**РЭЦЫДЫВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Злачынец, які адбыў пакаранне і зноў зрабіў злачынства (злачынствы). *Злодзей-р.* ‖ *ж.* **рэцыдыві́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **рэцыдыві́сцкі**, -ая, -ае.

**РЭЦЫДЫ́Ў**, -ды́ву, *мн.* -ды́вы, -ды́ваў, *м.* (кніжн.). **1.** Зварот хваробы пасля таго, калі здавалася б, што яна ўжо прайшла. *Р. рэўматызму.* **2.** Паўторнае праяўленне чаго-н. (адмоўнага). *Р. страху. Р. крадзяжу.* || *прым.* **рэцыды́ўны**, -ая, -ае.

**РЭЦЭНЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *незак., што.* Пісаць рэцэнзію на што-н. *Р. манаграфію.* || *зак.* **прарэцэнзава́ць**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны *і* **адрэцэнзава́ць**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны (разм.).

**РЭЦЭНЗЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтар рэцэнзіі. || *ж.* **рэцэнзе́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (разм.). || *прым.* **рэцэнзе́нцкі**, -ая, -ае.

**РЭЦЭ́НЗІЯ**, -і, *мн.* -і, -зій, *ж.* Крытычны водзыў пра што-н. напісанае, створанае, пра спектакль, фільм і пад. *Р. на паэтычны зборнік. Аддаць манаграфію на рэцэнзію. Станоўчая р.* || *прым.* **рэцэнзі́йны**, -ая, -ае.

**РЭЦЭ́ПТ**, -а, *М* -пце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прадпісанне ўрача аб саставе лякарства, яго прыгатаванні і спосабе прымянення. *Выпісаць р. на парашкі. Водпуск лякарстваў па рэцэптах. Р. на акуляры.* **2.** Спосаб прыгатавання чаго-н. *Кулінарныя рэцэпты. Р. варкі грыбоў.* **3.** *перан.* Настаўленне, парада, як дзейнічаць у тым ці іншым выпадку. *Цяжка даць р. на ўсе выпадкі жыцця.* || *прым.* **рэцэ́птавы**, -ая, -ае (да 1 знач.), **рэцэ́птны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **рэцэпту́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Рэцэптавы* або *рэцэптны бланк. Рэцэптурны аддзел* (у аптэцы).

**РЭЦЭ́ПТАРЫ**, -аў, *адз.* рэцэ́птар, -а, *м.* (спец.). У арганізме жывёл і чалавека: спецыяльныя адчувальныя ўтварэнні, якія ўспрымаюць раздражненні з навакольнага і ўнутранага асяроддзя і ператвараюць іх у нервовыя імпульсы, што перадаюцца ў цэнтральную нервовую сістэму. || *прым.* **рэцэпто́рны** *і* **рэцэ́птарны**, -ая, -ае.

**РЭЦЭПТУ́РА**, -ы, *ж.* (спец.). **1.** Раздзел фармацыі, які займаецца правіламі выпісвання рэцэптаў. **2.** Спосаб прыгатавання лекавых рэчываў, якіх-н. сумесей. || *прым.* **рэцэпту́рны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**РЭЧ**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Асобны прадмет, выраб. *Антыкварная р.* **2.** Тое, што належыць да асабістай рухомай маёмасці. *Чамадан з рэчамі. Цёплыя рэчы.* **3.** Пра творы навукі, мастацтва. *Ён напісаў цудоўную р. Слабая р.* **4.** Нешта, нейкая з'ява, абставіны. *Складаная р. жыццё. Дзіўная р.!* (вокліч, які паказвае на моцнае ўражанне). *Называць рэчы сваімі імёнамі* (гаварыць прама, не хаваючы ісціны). || *прым.* **рэ́чавы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Р. мяшок. Р. доказ. Рэчавае права* (маёмаснае права валодання рэчамі). *Рэчавая хвароба* (цяга да набывання рэчаў у 2 знач.; набывальніцтва, рэчавізм).

**РЭЧАВІ́ЗМ**, -у, *м.* (неадабр.). Цяга да рэчаў (у 2 знач.), да матэрыяльных каштоўнасцей на шкоду каштоўнасцям духоўным, набывальніцтва.

**РЭЧАІ́СНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* рэчаісны. **2.** Аб'ектыўны свет з усёй мнагастайнасцю яго сувязей; быццё; навакольнае асяроддзе; становішча. *Літаратура адлюстроўвае р.*

**РЭЧАІ́СНЫ**, -ая, -ае. Які сапраўды існуе; рэальны. *Р. факт.* || *наз.* **рэчаі́снасць**, -і, *ж.*

**РЭ́ЧАНЬКА** *гл.* рака, рэчка.

**РЭ́ЧАЧКА** *гл.* рака, рэчка.

**РЭ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Невялікая рака. || *ласк.* **рэ́чачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж. і* (у народнай славеснасці) **рэ́чанька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* || *прым.* **рачны́**, -а́я, -о́е.

**РЭ́ЧЫВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Від матэрыі; тое, з чаго складаецца фізічнае цела. *Арганічныя рэчывы. Выбуховыя рэчывы.*

**РЭЧЫТАТЫ́Ў**, -ты́ву, *м.* (спец.). Напеўная размова ў вакальна-музычным творы. *Чытаць рэчытатывам* (нараспеў). || *прым.* **рэчытаты́ўны**, -ая, -ае.

**РЭ́ЧЫЎНЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з рэчыва; матэрыяльны. *Р. свет.* ○ **Рэчыўныя назоўнікі** — у граматыцы: назоўнікі, якія называюць аднародную масу, рэчыва (напр.: малако, жвір, тытунь). || *наз.* **рэ́чыўнасць**, -і, *ж.*

**РЭ́ЧЫШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ышч *і* -аў, *н.* **1.** Паглыбленне ў грунце, па якім цячэ вадзяная плынь. *Р. ракі.* **2.** *перан.* Напрамак, шлях развіцця чаго-н. *Накіраваць гаворку ў патрэбнае р. У рэчышчы рамантычных традыцый.*

**РЭ́ШАТА**, -а, *М* -шаце, *мн.* рашо́ты *і* (з *ліч. 2, 3, 4*) рэ́шаты, рашо́т *і* рашо́таў, *н.* **1.** Рэч хатняга ўжытку — нацягнутая на шырокі абруч густая сетка для прасейвання мукі і інш. *Прасеяць муку на р. У рэшаце ваду насіць* (перан.: займацца чым-н. бескарысным, пустой справай; разм.). *Галава як р. ў каго-н.* (пра таго, хто ўсё забывае, у каго дрэнная памяць; разм.). **2.** Прасейвальнае прыстасаванне ў зернеачышчальных, сартавальных і іншых машынах. *Рашоты ў камбайне.* ◊ **Цуды ў рэшаце** (разм., жарт.) — пра што-н. незвычайнае або незразумелае. || *прым.* **рашо́тны**, -ая, -ае.

**РЭ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). Бок манеты, адваротны гербаваму малюнку.

**РЭ́ШТА**, -ы, *ДМ* -шце, *ж.* **1.** Частка чаго-н., якая засталася нявыкарыстанай; астача, астатак. **2.** Частка якога-н. адрэзка часу ці адлегласці, якая засталася нявыкарыстанай ці непераадоленай. *Р. дня. Р. дарогі.* **3.** Здача. *Атрымаць рэшту. Р. з рубля.* ◊ **У рэшце рэшт** — 1) у канчатковым выніку. *Доўга ўтлумачвалі, у рэшце рэшт зразумеў*; 2) *пабочн. сл.*, тое, што і *нарэшце* (у 2 і 3 знач.).

**РЭ́ШТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* **1.** Тое, што і *рэшта* (у 1 і 2 знач.). *Р. прыпасаў. Р. вольнага часу.* **2.** *мн.* -і, -аў. Тое, што захавалася, уцалела ад таго, што раней існавала. *Р. печы. Р. разбітых часцей ворага.* || *прым.* **рэ́шткавы**, -ая, -ае.

**РЭ́Я**, -і, *мн.* -і, рэй *і* -яў, *ж.* (спец.). Рухомы папярочны брус на мачце, які служыць для мацавання парусоў, устаноўкі антэн і падачы сігналаў.

**РЭ́ЯЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., рэ́е; *незак.* **1.** Лятаць плаўна; лунаць. *У паднябессі рэяў каршун.* **2.** Плаўна развявацца. *Рэюць сцягі.*

# С

**С...** (а таксама **СА...**, **СУ...**), *прыстаўка.* **I.** Ужыв. пры ўтварэнні дзеясловаў і надае ім знач.: **1.** Убіранне чаго-н. з паверхні або наогул адкуль-н., напр.: *ссыпаць, спілаваць.* **2.** Рух зверху ўніз; перамяшчэнне туды і назад, напр.: *сцячы, скінуць, скаціцца, схадзіць* (у краму). **3.** Злучэнне: а) змацаванне, напр.: *скруціць* (дрот), *склеіць;* б) сканцэнтраванне ў адным месцы, напр.: *ссунуць* (сталы), *ссяліць;* в) (звычайна з часціцай *-ся*) рух з розных месцаў у адзін пункт, напр., *сцячыся.* **4.** (з часціцай *-цца*). Узаемнае дзеянне, напр.: *спісацца, спрацавацца.* **5.** Выніковасць: а) паўната, інтэнсіўнасць, наступленне якога-н. стану, напр.: *ступіцца, спісацца* (пра чарніла); б) зрасходаванне ў выніку якога-н. дзеяння, напр.: *скурыць* (тытунь), *скарміць;* в) выраб прадмета ў выніку дзеяння, напр.: *скруціць* (вяроўку), *спячы* (торт). **II.** Утварае форму закончанага трывання некаторых дзеясловаў, напр.: *скласці, станцаваць.* **III.** Ужыв. пры ўтварэнні прыслоўяў са знач. месца, напрамку, прычыны ад ускосных склонаў назоўнікаў, напр.: *справа, спачатку.*

**СА** (*гл.* З), *прыназ. з Р, В* і *Т.* Ужыв. замест «з» перад словамі, якія пачынаюцца са збегу зычных, дзе першымі з'яўляюцца «с», «з», «ж», «ш», «м», напр.: *са стала, са зруба, са жменьку, са шчыта, са мной.*

**СА...**, *прыстаўка* (*гл.* **С...**). **I.** Выкарыстоўваецца пры ўтварэнні дзеясловаў замест прыстаўкі «с...»: 1) перад дзвюма і больш зычнымі, напр.: *саткаць, сагрэць, саслаць, саставіць;* 2) перад зычнай з на-

ступным «ь» або апострафам, напр.: *салью, саб'ю.* **ІІ.** Выкарыстоўваецца для ўтварэння назоўнікаў і прыметнікаў, якія абазначаюць сумеснасць дзеяння, напр., *саўдзельнік.*

**СААМЫ**, -аў, *адз.* саам, -а, *м.* Народ, які насяляе Кольскі паўвостраў, а таксама поўнач Фінляндыі, Нарвегіі і Швецыі. ‖ *ж.* **саамка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак. ‖ *прым.* **саамскі**, -ая, -ае.

**САБАКА**, -і, *мн.* -і, -бак, *м.* **1.** Свойская млекакормячая жывёліна сямейства сабачых. *Пародзістыс. Паляўнічы с.* **2.** *перан.* Пра злога, шкоднага чалавека (разм., лаянк.). ◊ **Вось дзе сабака закапаны** (разм.) — вось у чым сутнасць справы. **Сабакам сена касіць** (жарт.) — знаходзіцца невядома дзе і займацца невядома чым. **Сабаку з'есці** *на чым* (разм.) — быць вопытным у якой-н. справе. **У сабакі вачэй пазычыць (пазычыўшы)** (разм., асудж.) — згубіць сумленне. ‖ *памянш.* **сабачка**, -і, *мн.* -і, -чак, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **сабачы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**САБАКАВОД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па сабакаводстве.

**САБАКАВОДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне сабак і паляпшэнне іх пароды. *Службовае с.* ‖ *прым.* **сабакаводчы**, -ая, -ае.

**САБАКАГАДОВЕЦ**, -доўца, *мн.* -доўцы, -доўцаў, *м.* Тое, што і *сабакавод.*

**САБАКАГАДОЎЛЯ**, -і, *ж.* Тое, што і *сабакаводства.* ‖ *прым.* **сабакагадоўчы**, -ая, -ае.

**САБАКАР**, -а, *мн.* -ы, -оў, *м.* **1.** Чалавек, які даглядае сабак у спецыяльным гадавальніку, у сабачніку (разм.). **2.** Чалавек, які займаецца лоўляй сабак. **3.** Той, хто ганяе, дражніць сабак (разм.). ‖ *прым.* **сабакарскі**, -ая, -ае.

**САБАКАРНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* (разм.). Памяшканне для сабак (пераважна паляўнічых).

**САБАЛЁВЫ** *гл.* собаль.

**САБАЛІНЫ** *гл.* собаль.

**САБАНТУЙ**, -я, *м.* **1.** У татараў і башкіраў: веснавое народнае свята. **2.** *перан.* Шумлівая пагулянка (разм., жарт.). *З нагоды прыезду ў горад наладзілі с.*

**САБАТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе; -туй; -таваны; *зак.* і *незак., што.* Дзейнічаць супраць чаго-н. шляхам сабатажу, займацца сабатажам. ‖ *наз.* **сабатаванне**, -я, *н.*

**САБАТАЖ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Наўмысны зрыў работы якога-н. мерапрыемства. **2.** Замаскіраванае супрацьдзеянне ажыццяўленню чаго-н. ухіленнем ад удзелу ў ім ці свядомым нядобрасумленным яго выкананні. *Справа даходзіла да свядомага сабатажу.* ‖ *прым.* **сабатажны**, -ая, -ае.

**САБАТАЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца сабатажам. ‖ *ж.* **сабатажніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **сабатажніцкі**, -ая, -ае.

**САБАТАЖНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Тое, што і *сабатаваць.*

**САБАЧАНЯ** *і* **САБАЧАНЁ**, -няці, *мн.* -няты, -нят, *н.* **1.** Дзіцяня сабакі, шчаня. **2.** Маленькі сабачка.

**САБАЧКА**[1], -і, *мн.* -і, -чак, *м.* **1.** *гл.* сабака (у 1 знач.). **2.** Шчаня.

**САБАЧКА**[2], -і, *мн.* -і, -чак, *м.* **1.** Спускавы механізм у агнястрэльнай зброі. *Націснуць на сабачку.* **2.** Прыстасаванне ў машынах, механізмах, якое перашкаджае руху зубчастага кола назад.

**САБАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *сабакар* (у 1 і 2 знач.). **2.** Аматар сабак (разм.). **3.** Памяшканне для сабак; сабакарня.

**САБАЧЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сабака. **2.** Вельмі цяжкі, нязносны, а таксама (пра мароз, холад) незвычайна моцны ў сваім праяўленні (разм.). *Сабачая доля. С. холад.* **3.** *перан.* Адданы, паслужлівы, пакорны (разм.). *Сабачыя вочы. Сабачая пакорнасць начальству.* **4.** Састаўная частка некаторых батанічных і заалагічных назваў. *Сабачая мята. С. клешч.* ◊ **Ушыцца ў сабачую скуру** (разм.) — страціць сумленне.

**САБЕ**[1] *гл.* сябе.

**САБЕ**[2], *часц.* (разм.). Ужыв. пры дзеясловах або займенніках для абазначэння і падкрэслівання спакойнага, свабоднага, незалежнага дзеяння. *Еду с. і ні пра што не думаю. Што яна с. думае?* ◊ **Нішто сабе** (разм.) — не дрэнны. **Няхай (хай) сабе** (разм.) — добра, хай будзе так. **Так сабе** (разм.) — 1) ні добрае, ні дрэннае (пра каго-, што-н.); 2) проста так, несур'ёзна.

**САБЕКОШТ**, -у, *М* -шце, *м.* Грашовыя выдаткі прадпрыемства на выраб прадукцыі, якія складаюцца з затрат на сродкі вытворчасці, транспартавання і заработную плату. *Знізіць с. прамысловых тавараў.*

**САБЕС**, -а, *м.* **1.** Скарачэнне: сацыяльнае забеспячэнне. *Органы сабеса.* **2.** Установа, якая займаецца пытаннямі сацыяльнага забеспячэння. *Здаць дакументы ў с.* ‖ *прым.* **сабесаўскі**, -ая, -ае (разм.).

**САБО**, *нескл., адз. м.* і *н.* Чаравікі на драўлянай падэшве або выдзеўбаныя з дрэва. *Зручны с. Модныя с.*

**САБОЙ** *гл.* сябе.

**САБОР**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Сход, з'езд (спец.). *Царкоўны с. Памесны с.* (з'езд служыцеляў хрысціянскай царквы). **2.** -а. Галоўная або вялікая царква ў горадзе, манастыры. *Кафедральны с.* ‖ *прым.* **саборны**, -ая, -ае.

**САБОРАВАННЕ**, -я, *н.* Адно з таінстваў хрысціянскай царквы: чытанне малітваў, памазанне ялеем цяжкахворага або паміраючага чалавека.

**САБОРАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго.* У хрысціян: правесці (праводзіць) над кім-н. сабораванне.

**САБОЮ** *гл.* сябе.

**САБРАНЫ**, -ая, -ае. Які ўмее засяроджвацца; падцягнуты. ‖ *наз.* **сабранасць**, -і, *ж. У навуковай працы патрэбна с. і засяроджанасць.*

**САБРАТ**, -а, *М* -брацце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Блізкі таварыш па занятку, па родзе дзейнасці. *С. па зброі.* **2.** *перан.* Хто-, што-н. у шэрагу падобных істот, з'яў (разм.). *Не горшы за сваіх сабратаў.*

**САБРАЦЦА**, збяруся, збярэшся, збярэцца; збяромся, зберацёся, збяруцца; збярыся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. адз. звычайна не ўжыв.*). Сысціся, з'ехацца, згрупавацца ў адно месца. *Сабраліся ўсе ўдзельнікі паходу. Вечарам уся сям'я сабралася дома.* **2.** (*1 і 2 ас. адз. звычайна не ўжыв.*). Паступова накапіцца, назбірацца ў адным месцы. *Сабралася нямала ягад. Над балотам збіраюцца хмары.* **3.** Падрыхтаваць, нагатаваць усё неабходнае для паездкі, паходу куды-н. *С. ў горад. С. на паляванне.* **4.** *з інф.* Наважыцца зрабіць што-н. *С. вячэраць. С. садзіць агарод.* ◊ **Сабрацца з думкамі** — унутрана арганізаваць сябе. **Сабрацца з духам** — набрацца смеласці. **Сабрацца ў прочкі** — звычайна пайсці ад мужа; пакінуць сваю сям'ю з-за неладоў. **Сабрацца ў свіныя галасы** (разм.) — у позні час, са спазненнем. ‖ *незак.* **збірацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **збор**, -у, *м.* (да 1 знач.).

**САБРАЦЬ**, збяру, збярэш, збярэ; збяром, зберацё, збяруць; збяры; сабраны; *зак.* **1.** *каго-што.* Сканцэнтраваць у адным месцы, запрасіўшы або прымусіўшы прыехаць, прыйсці куды-н. *С. студэнтаў.* **2.** *што* і *чаго.* Назапасіць дзе-н., паступова збіраючы, адшукваючы. *С. многа значкоў. С. грошы на мэблю.* **3.** *што.* Размясціць блізка адно ля аднаго; злучыць у што-н. *С. кветкі ў букет.* **4.** *што.* Зняць пасля паспявання ўраджай. *С. ягады з кустоў парэчак. С. добры ўраджай пшаніцы.* **5.** *што* і *чаго.* Пазбіраць, падбіраючы з зямлі рассыпанае, раскіданае; прывесці ў парадак. *С. шчаўя ў суп. С. бульбу пасля бараны. С. інструмент са стала.* **6.** *што.* Узяўшы з розных крыніц, сканцэнтраваць, змясціць у адным месцы. *С. звесткі. С. прапановы і заўвагі.* **7.** *што.* Пры галасаванні атрымаць пэўную колькасць галасоў за сябе, за сваю кандыдатуру. *С. большасць галасоў.* **8.** *што.* Склаўшы ў адно месца, падрыхтаваць, нагатаваць. *С. сумку ў дарогу.* **9.** *каго (што).* Падрыхтаваць у дарогу таго, хто ад'язджае. *С. сына ў паездку.* **10.** *што.* Злучыўшы асобныя часткі, дэталі, атрымаць што-н. цэлае. *С. матацыкл. С. будзільнік.* **11.** *перан., што.* Мабілізаваць свае сілы, волю, энергію і пад., прывесці сябе ў актыўны стан. *С. волю.* **12.** *што* і *без дап.* Зрабіць зборкі на чым-н. *С. сукенку ў поясе.* **13.** *што.* Паставіць, прыгатаваць на стол усё неабходнае для яды. *Тое-сёе можна с. на стол. С. абед.* ‖ *незак.* **збіраць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **збор**, -у, *м. і* **збіранне**, -я, *н.*

**САБУТЭЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які п'е, п'янствуе разам з кім-н. ‖ *ж.* **сабутэльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**САВА**, -ы, *мн.* совы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) савы, соў, *ж.* Драпежная начная птушка з вялікай круглай галавой, з вялікімі вачамі і

кароткай загнутай дзюбай. ‖ *прым.* **саві́ны**, -ая, -ае.

**САВАКУПІ́ЦЦА**, -куплюся, -ку́пішся, -ку́піцца; *зак.* (кніжн.). Здзейсніць палавы акт. ‖ *незак.* **савакупля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **савакупле́нне**, -я, *н.*

**СА́ВАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пахавальны ўбор з белай тканіны для нябожчыка. ‖ *прым.* **са́ванны**, -ая, -ае.

**САВА́ННА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Трапічны стэп з рэдкімі дрэвамі і хмызнякамі. ‖ *прым.* **сава́нны**, -ая, -ае.

**САВЕ́Т**, -а, *М* -ве́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адна з форм палітычнай арганізацыі грамадства, а таксама прадстаўнічы орган дзяржаўнай улады ў былым СССР. *Улада Саветаў. Вярхоўны С. Рэспублікі Беларусь. Сельскі С. Гарадскі С. Мясцовыя Саветы. С. нацыянальнасцей.* **2.** Назва некаторых органаў дзяржаўнага кіравання, якія складаюцца з выбарных або прызначаных асоб і маюць кіруючае значэнне ў жыцці дзяржавы, у дзейнасці якой-н. галіны гаспадаркі. *Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.* **3.** Распарадчы або дарадчы калегіяльны орган пры якой-н. установе, арганізацыі, таварыстве і пад. *Савет Бяспекі ААН. Вучоны с. інстытута. Педагагічны с. школы. Мастацкі с. тэатра.*

**САВЕТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Міждысцыплінарны кірунак комплексных грамадазнаўчых даследаванняў, прысвечаных вывучэнню жыцця былога Савецкага Саюза. ‖ *прым.* **саветалагі́чны**, -ая, -ае.

**САВЕ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Назва пасады ў некаторых установах (пасольствах, міністэрствах і пад.), а таксама асоба, якая займае гэту пасаду. *С. пасольства. С. юстыцыі. С. дырэкцыі.*

**САВЕТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па саветалогіі.

**САВЕ́ЦКІ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да Савета, заснаваны на кіраванні Саветамі як органамі дзяржаўнай улады. *Савецкая ўлада.* **2.** Адданы справе і ідэалам краіны Саветаў, які выражае гэтыя ідэалы і інтарэсы. *С. пункт погляду.*

**САВЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* (разм.). Тое, што і *салавець.* ‖ *зак.* **пасаве́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**САВІ́НЫ** *гл.* сава.

**САВУ́ЧАНЬ** -чня, *мн.* -чні, -чняў, *м.* Той, хто вучыцца або вучыўся разам з кім-н. ‖ *ж.* **савучані́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц.

**СА́ГА**[1], -і, *ДМ* са́зе, *мн.* -і, саг, *ж.* Старажытнаскандынаўскае і старажытнаірландскае народнае эпічнае сказанне пра багоў і герояў. *Сагі аб вікінгах.*

**СА́ГА**[2], *нескл.*, *н.* Крупы з крухмалу сагавай пальмы, а таксама штучныя крупы з кукурузнага або бульбянога крухмалу. ‖ *прым.* **са́гавы**, -ая, -ае.

**САГІТАВА́ЦЬ** *гл.* агітаваць.

**САГНА́ЦЬ**, зганю́, зго́ніш, зго́ніць; сагна́ў, -на́ла; зганí; сагна́ны; *зак.* **1.** *каго (што).* Гонячы, прымусіць пайсці, пабегчы, паляцець адкуль-н. *С. з месца.* **2.** *каго-што.* Прымусіць сабрацца ў адно месца. *С. цялят на ферму.* **3.** *што.* Растапіць (снег). *Сонца сагнала снег з пагоркаў.* **4.** *што.* Пазбавіцца ад чаго-н.; знішчыць. *С. вагу.* ◊ **Сагнаць ахвоту** (разм.) — задаволіць жаданне, нацешыцца чым-н. **Сагнаць злосць** *на кім* (разм.) — даць выхад сваёй зласлівасці, дрэннаму настрою. ‖ *незак.* **зганя́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **згон**, -у, *м.* і **зго́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.*

**САГНУ́ЦЦА** *гл.* гнуцца.

**САГНУ́ЦЬ** *гл.* гнуць.

**САГРАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які сагравае, служыць для саграванне. *С. кампрэс.*

**САГРАШЫ́ЦЬ** *гл.* грашыць.

**САГРЭ́ЦЦА**, -грэ́юся, -грэ́ешся, -грэ́ецца; *зак.* **1.** Сагрэць сябе, сваё цела. *С. ў хаце ля печы.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Стаць гарачым, цёплым; нагрэцца. *Вада ў печы сагрэлася.* **3.** *перан.* Падабрэць ад добрых, сардэчных слоў, адносін. *Ад добрай парады сагрэлася душа.* ‖ *незак.* **саграва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **саграва́нне**, -я, *н.*

**САГРЭ́ЦЬ**, -грэ́ю, -грэ́еш, -грэ́е; -грэ́ты; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць цёплым, гарачым. *С. малако. Сонца сагрэла зямлю.* **2.** *каго-што.* Перадаць каму-, чаму-н. сваю цеплыню. *С. дзіця на руках.* **3.** Суцешыць, падпадзёрыць, ажывіць (словам, пачуццём, думкаю, праяўленнем клопату). *С. сваёй дабрынёй* (перан.). ‖ *незак.* **саграва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **саграва́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**САД**, -а *і* -у, *М* -дзе, *мн.* сады́, -о́ў, *м.* **1.** -у. Участак зямлі, засаджаны дрэвамі, кустамі, кветкамі. *Пасадзіць с.* **2.** -а. Тое, што і дзіцячы сад. *Забраць з сада дзяцей.* ○ **Батанічны сад** — сад, у якім з навуковай мэтай вырошчваюць розныя расліны. **Дзіцячы сад** — выхаваўчая ўстанова для дзяцей дашкольнага ўзросту. **Зімні сад** — спецыяльнае цёплае, зашклёнае памяшканне для вырошчвання кветак, раслін; аранжарэя. ‖ *памянш.* **садо́к**, -дка́, *мн.* -дкí, -дко́ў, *м.* і **са́дзік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **садо́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**САДАВІНА́**, -ы́, *ж.*, *зб.* Плады садовых дрэў. *Купіць свежай садавіны.*

**САДАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па садаводстве; чалавек, які разводзіць сад, сады.

**САДАВО́ДСТВА**, -а, *н.* **1.** Развядзенне садоў як галіна раслінаводства. **2.** Асобная гаспадарка, занятая развядзеннем садовых культур. ‖ *прым.* **садаво́дчы**, -ая, -ае.

**САДАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -нí; *зак.* і *аднакр.* (разм.). **1.** *што.* З размаху ўсадзіць што-н. вострае. *С. нож у дрэва.* **2.** *чым* і *без дап.* Моцна ўдарыць. *С. кулаком у бок. С. з ружжа* (выстраліць).

**САДЖА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Сельскагаспадарчая машына для пасадкі бульбы, агародніны, расады.

**СА́ДЖАНЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Маладая расліна, вырашчаная ў гадавальніку з чаранкоў або сеянцаў і прызначаная для перасадкі ў іншае месца. *Саджанцы сліў.* ‖ *прым.* **са́джанцавы**, -ая, -ае (спец.).

**СА́ДЖАНЫ**, -ая, -ае. Які вырас з саджанца, пасаджаны (не сеяны і не дзікарослы). *Саджаныя бярозы. С. лес.*

**САДЖА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што.* Тое, што і *садзіць* (у 1—8 знач.).

**САДЗЕ́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто садзейнічае, дапамагае, спрыяе каму-, чаму-н.

**САДЗЕ́ЙНІЧАННЕ**, -я, *н.* Дапамога, падтрымка ў чым-н. *С. поспеху. Аказаць с.*

**САДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Аказваць садзейнічанне, спрыяць. *С. поспеху.* ‖ *зак.* **пасадзе́йнічаць**, -аю, -аеш, -ае.

**САДЗІ́ЦЦА** *гл.* сесці.

**САДЗІ́ЦЬ**, саджу́, са́дзіш, са́дзіць; *незак.* **1.** *каго-што.* Запрашаць, дапамагаць або прымушаць заняць якое-н. месца. *С. дзяцей у зале. С. пасажыраў на параход. С. авіялайнер* (весці на пасадку). **2.** *каго (што).* Змяшчаць куды-н., прымушаючы што-н. рабіць, або знаходзіцца ў якім-н. стане; абмяжоўваць у чым-н. *С. каго-н. за станок. С. у астрог. С. квактуху. С. на дыету.* **3.** *што.* Закопваць у зямлю або сеяць з мэтай вырошчвання. *С. бульбу. С. сад.* **4.** *што.* Ставіць у гарачую печ, сушню для выпякання, сушэння. *С. пірагі ў печ.* **5.** *што.* Усоўваць, змяшчаць што-н. куды-н. *С. руку ў цеста. С. фотакартку за рамку* (разм.). **6.** і *без дап.* Ужыв. для ўтварэння якога-н. энергічнага дзеяння (разм.). *С. калом па плоце. С. з ружжа* (страляць). *З коміна садзіў чорны дым* (валіў густымі клубамі). **7.** *каго-што.* Глыбока ўвязнуўшы ў што-н. гразкае, даць завязнуць, засесці. *С. калёсы ў гразь.* **8.** *што.* Наносіць, прымацоўваць што-н. на якую-н. паверхню (разм.). *С. плямы. С. латкі на штаны.* **9.** *што.* Марна траціць, расходаваць (разм.). *Няма чаго напрасна с. грошы.* ◊ **На пасад садзіць** — 1) рыхтаваць месца і садзіць на покуце — падчас вяселля; 2) аддаваць замуж. **Пасад садзіць** — рассцілаць снапы на таку ў два рады, каласы да каласоў для абмалоту. **Садзіць нос** *куды, у што* (разм., неадабр.) — умешвацца не ў сваю справу. ‖ *зак.* **пасадзі́ць**, -саджу́, -са́дзіш, -са́дзіць; -са́джаны. ‖ *наз.* **паса́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* (да 1 знач. — пра самалёт або пра размяшчэнне ў вагоне, параходзе і пад. і 3 знач.).

**САДЗЬМУ́ЦЬ**, -дзьму́, -дзьме́ш, -дзьме́; -дзьмём, -дзьмяце́, -дзьму́ць; -дзьмí; -дзьму́ты; *зак., каго-што.* Сагнаць, скінуць з паверхні чаго-н. струменем, павевам ветру. *С. пыл з тэлевізара.* ◊ **Як ветрам садзьмула** — знік імгненна.

**СА́ДНІЦЬ**, -ніць; *безас.; незак.* (разм.). Пра шчымлівы, пякучы боль (пры раненні, апёку, раздражненні скуры і пад.). *Нага с.*

**САДО́ВЫ** *гл.* сад.

**САДО́К**[1] *гл.* сад.

**САДО́К**[2], -дка́, *мн.* -дкі́, -дко́ў, *м.* **1.** Штучны вадаём для развядзення рыбы; прыстасаванне для трымання злоўленай жывой рыбы. **2.** Памяшканне (клетка, вадаём і пад.) для развядзення і трымання жывёл. *Гусіны с. С. для рыбы.* ‖ *прым.* **садко́вы**, -ая, -ае. *Садковая рыба.*

**САДО́М**, -у, *м.* (разм.). Неразбярыха, сумятня, крык. *У хаце цэлы вечар с.* ◊ **Садом і гамора** — поўны беспарадак, хаос.

**САДО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па доглядзе за садам і вырошчванні садовых раслін. ‖ *ж.* **садо́ўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **садо́ўніцкі**, -ая, -ае.

**САДО́ЎНІЦТВА**, -а, *н.* **1.** Занятак садоўніка, майстэрства даглядаць сад. **2.** Развядзенне садовых раслін як галіна сельскай гаспадаркі. ‖ *прым.* **садо́ўніцкі**, -ая, -ае.

**САДРА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., здзярэ́цца; *зак.* **1.** Злупіцца, зняцца (пра кару, скуру і пад.), аддзяліцца ад паверхні. *На пальцы садралася скура.* **2.** Стаць непрыгодным ад доўгага ўжывання (пра венік, шчотку і пад.). ‖ *незак.* **здзіра́цца**, -а́ецца.

**САДРА́ЦЬ** *гл.* драць.

**САДРУ́ЖНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Узаемная дружба, сяброўскае яднанне. *С. народаў. Салдацкая с.* **2.** Аб'яднанне каго-, чаго-н. на аснове агульных інтарэсаў, поглядаў, дружбы. *С. пісьменнікаў. С. мастакоў.* **3.** Дзяржаўнае аб'яднанне. *Садружнасць Незалежных Дзяржаў (СНД).*

**САДЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Абвостраная жорсткасць, заўзятая цяга да катаванняў; задавальненне ад чужых пакут. **2.** Палавая ненармальнасць, пры якой палавое пачуццё задавальняецца прычыненнем фізічнага болю другой асобе. ‖ *прым.* **сады́сцкі**, -ая, -ае.

**САДЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, апантаны садызмам. ‖ *ж.* **сады́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **сады́сцкі**, -ая, -ае.

**СА́ЕЧНЫ** *гл.* сайка.

**СА́ЖА**, -ы, *ж.* **1.** Чорны налёт ад няпоўнага згарання паліва, што асядае на ўнутраных частках печаў, комінаў. **2.** Хвароба хлебных злакаў у выглядзе чорнага ліпкага налёту.

**СА́ЖАЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Штучны вадаём. **2.** Садок для рыбы. ‖ *прым.* **са́жалкавы**, -ая, -ае (спец.). *Сажалкавая рыбная гаспадарка.*

**СА́ЖАНЬ**, -жня, *мн.* -жні, -жняў, *м.* **1.** Старая беларуская і руская мера даўжыні, роўная 3 аршынам (2,13 м). **2.** Колькасць чаго-н., роўная гэтай меры. *Тры сажні дроў.* **3.** Прылада для абмервання зямельных участкаў. *Памераць прысядзібны надзел сажнем.* ◊ **Касы сажань у плячах** — пра шырокага ў плячах, высокага чалавека. ‖ *прым.* **сажнёвы**, -ая, -ае. *Сажнёвыя крокі* (вельмі вялікія).

**САЖО́НКІ**, -нак. Стыль плавання з папераменным выкідваннем уперад то адной, то другой рукі. *Плыць сажонкамі.*

**САЗА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прамысловая рыба сямейства карпавых з буйной луской. ‖ *прым.* **сазано́вы**, -ая, -ае і (прыгатаваны з сазана) **саза́навы**, -ая, -ае. *Сазановая галава. Сазанавая юшка.*

**САЗВАНІ́ЦЦА**, -званюся, -зво́нішся, -зво́ніцца; *зак.* Звязацца з кім-н. па тэлефоне, а таксама пазваніўшы па тэлефоне, дамовіцца пра што-н. *Перш чым ехаць да сястры, трэба с.* ‖ *незак.* **сазво́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**САЗВА́ЦЬ**, ззаву́, ззаве́ш, ззаве́; ззавём, ззавяце́, ззаву́ць; сазва́ў, -ва́ла; ззаві́; сазва́ны; *зак.* **1.** *каго (што).* Паклікаць, сабраць у адно месца ўсіх, многіх. *С. гасцей.* **2.** *каго-што.* Сабраўшы ўдзельнікаў сходу, канферэнцыі і пад., арганізаваць, пачаць дзейнасць па вырашэнні якіх-н. пытанняў. *С. кансіліум. С. нараду.* ‖ *незак.* **ззыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**САЗЛУ́ЧАНЫ**. У выразе: **сазлучаныя сасуды** (спец.) — сасуды, злучаныя адзін з другім у ніжняй частцы.

**САЗНА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Усвядоміўшы няправільнасць свайго ўчынку, сказаць пра гэта. *С. ў сваёй памылцы.* **2.** Прызнаць сваю віну. *Пасля доўгага запірання злачынец сазнаўся.* ‖ *незак.* **сазнава́цца**, -наюся, -нае́шся, -нае́цца; -наёмся, -наяце́ся, -наюцца. ‖ *наз.* **сазна́нне**, -я, *н.*

**САЙГА́**, -і́, *ДМ* сайзе́, *мн.* са́йгі, -аў, *ж.* і **САЙГА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Стэпавая парнакапытная жывёліна з ліраладобнымі рагамі, від антылопы. ‖ *прым.* **сайга́чы**, -ая, -ае. *С. статак.*

**СА́ЙДА**, -ы, *ДМ* са́йдзе, *ж.* Паўночная марская рыба сямейства трасковых. ‖ *прым.* **са́йдавы**, -ая, -ае.

**СА́ЙКА**, -і, *ДМ* са́йцы, *мн.* -і, са́ек, *ж.* Невялікая прадаўгаватая або круглая булка з пшанічнай мукі. ‖ *прым.* **са́ечны**, -ая, -ае.

**СА́ЙРА**, -ы, *ж.* Ціхаакіянская прамысловая рыба. ‖ *прым.* **са́йравы**, -ая, -ае.

**САЙТ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Група старонак у сетцы Інтэрнэт, звязаных агульным імем, тэматыкай і сістэмай навігацыі. *Знайсці патрэбныя звесткі на сайце. Стваральнік сайтаў.* ‖ *прым.* **са́йтавы**, -ая, -ае.

**САК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Жаночая верхняя вопратка тыпу кароткага прасторнага паліто. ‖ *памянш.* **сачо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.; прым.* **сачко́вы**, -ая, -ае. ‖ *прым.* **са́кавы**, -ая, -ае.

**САК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рыбалоўная снасць у выглядзе сеткі, нацягнутай на абруч. ‖ *памянш.* **сачо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.; прым.* **сачко́вы**, -ая, -ае. ‖ *прым.* **са́кавы**, -ая, -ае.

**САКАВА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Апарат, прызначаны для атрымання соку з ягад і садавіны, для пастэрызацыі кампотаў і марынадаў. **2.** Прыстасаванне ў выглядзе злучаных трубамі чанаў для атрымання дубільнага соку ў гарбарнай вытворчасці. ‖ *прым.* **сакава́рачны**, -ая, -ае.

**САКАВІ́К**, -а́, *м.* Трэці месяц каляндарнага года. ‖ *прым.* **сакаві́цкі**, -ая, -ае. *С. вецер.*

**САКАВІ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які змяшчае шмат соку. *Сакавітыя суніцы. Сакавітая трава.* **2.** *перан.* Яркі, свежы, каларытны. *Сакавітыя фарбы.* **3.** *перан.* Пра гук, голас: прыемны, звонкі, гучны. *С. смех.* **4.** *перан.* Пра словы, мову: трапны, вобразны. *Сакавітае слова. Сакавітая мова вёскі.* ‖ *наз.* **сакаві́тасць**, -і, *ж.*

**САКАВІ́ЦКІ** *гл.* сакавік.

**САКАЛІ́НЫ** *гл.* сокал.

**САКАЛІ́ХА**, -і, *ДМ* -лі́се, *мн.* -і, -лі́х, *ж.* Самка сокала.

**САКАЛЯНЯ́** і **САКАЛЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Птушаня сокала.

**САКАТА́ЦЬ**, -качу́, -ко́чаш, -ко́ча; -качы́; *незак.* **1.** Пра курэй: кудахтаць, утвараць сокат; пра насякомых, птушак: стракатаць, утвараць строкат. *Сакочуць куры. Трывожна стракатала сарока.* **2.** Часта стукаць, страляць, трашчаць. *У лесе сакаталі кулямёты.* **3.** *перан.* Вельмі хутка, не сціхаючы, гаварыць (разм.). ‖ *наз.* **саката́нне**, -я, *н.*

**САКАТУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Той, хто многа, не сціхаючы, гаворыць; балбатун.

**САКАТУ́ХА**, -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х, *ж.* **1.** Курыца. *С. аб'елася ячменем.* **2.** Балбатлівая жанчына (разм.). *Гэта с. цэлы дзень балбоча.*

**САКАЎНЫ́**, -а́я, -о́е. Тое, што і *сакавіты.*

**САКВАЯ́Ж**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дарожная сумка з замком, звычайна са скуры. ‖ *прым.* **сакважны**, -ая, -ае.

**СА́КЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Назва жылля каўказскіх горцаў. *Стаяла с. пад гарою.*

**САКО́Л**, -кала́, *мн.* -калы́, -кало́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *сокал.* ◊ **Гол як сакол** — надта бедны, нічога не мае.

**САКО́ЛІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* сокал. **2.** Пяшчотная назва юнака, дзіцяці, мужчыны (звычайна ў звароце і нар.-паэт.). *Сынок, с. мой дарагі!*

**САКРАМЕНТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** Звязаны з рэлігійным абрадам, рытуальны. *Сакраментальныя словы* (таксама перан.: якія гучаць, як заклінанні). **2.** *перан.* Які замацаваўся ў традыцыі, стаў звычайным. ‖ *наз.* **сакрамента́льнасць**, -і, *ж.*

**САКРАТА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Асоба, якая вядзе справаводства, канцылярыю ўстановы або перапіску і справы прыватнай асобы. *Асабісты с.* **2.** Асоба, што піша пратакол сходу. **3.** Выбарны кіраўнік арганізацыі. *Генеральны с. ААН.* **4.** Адказная асоба, якая вядзе арганізацыйна-выканаўчую работу. *Вучоны с. інстытута.* ‖ *прым.* **сакрата́рскі**, -ая, -ае.

**САКРАТАРЫЯ́Т**, -а, *М* -рыя́це, *м.* **1.** Арганізацыйна-выканаўчы орган, аддзел пры ўстанове ці арганізацыі для вядзення бягучых спраў. **2.** Супрацоўнікі такога аддзела, органа.

продкаў, а таксама паміж сваякамі тых, хто пажаніўся. *Быць у сваяўстве з кім-н. С. зрабілася відам роднасці, сваяцтва.* **2.** *перан.* Падабенства, блізкасць па змесце, прыкметах, уласцівасцях. *Першыя вершы былі ў непасрэдным сваяўстве з Багдановічам.*

**СВАЯ́ЦКІ**, -ая, -ае. **1.** Заснаваны на сваяцтве, які мае адносіны да сваяцтва. *Сваяцкія адносіны.* **2.** Блізкі па агульнасці паходжання. **3.** Уласцівы сваякам, блізкім людзям; сардэчны, цёплы. *С. прыём гасцей.* ‖ *наз.* **сваяцкасць**, -і, *ж.*

**СВАЯ́ЦТВА**, -а, *н.* **1.** Сувязь паміж людзьмі, заснаваная на паходжанні ад агульнага продка, а таксама на шлюбных сямейных адносінах. *Дальняе с. С. па бацькавай лініі.* **2.** *зб.* Родныя, сваякі; радня. *На вяселле з'ехалася ўсё с.* **3.** *перан.* Падабенства, блізкасць па змесце, уласцівасцях, прыкметах. *С. з традыцыямі беларускіх класікаў.*

**СВАЯ́ЧКА** *гл.* сваяк.

**СВЕ́ДКА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -дцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -дак. **1.** Чалавек, які непасрэдна прысутнічаў пры якой-н. падзеі, здарэнні; сучаснік і назіральнік чаго-н. *Быць сведкам бойкі.* **2.** Асоба, якая прысутнічае пры чым-н. для афіцыйнага пацвярджэння сапраўднасці ці правільнасці таго, што адбываецца. *Прысутнічаць сведкамі пры рэгістрацыі шлюбу.* **3.** Асоба, якая выклікаецца ў суд, каб даць паказанні пра вядомыя ёй абставіны па справе. *Быць за сведку ў судзе.* ‖ *прым.* **све́дкавы**, -ая, -ае. *Сведкавыя паказанні.*

**СВЕ́ДЧАННЕ**, -я, *н.* **1.** Паведамленне асобы пра тое, сведкай чаго яна была. *Па сведчанні старажылаў, гэты млын тут стаяў даўно.* **2.** Факты і рэчы, што з'яўляюцца пацвярджэннем чаго-н. *Гэтыя лічбы — с. пра добрыя поспехі.* **3.** Дача паказанняў на судзе. *Праўдзівае с.* **4.** Афіцыйнае пацвярджанне сапраўднасці чаго-н. *С. медыцынскай камісіі.*

**СВЕ́ДЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* **1.** *аб чым, пра што* і *з дадан.* Пацвярджаць правільнасць, сапраўднасць чаго-н. у якасці відавочніка, сведкі, дасведчанай асобы. *С. аб забойстве.* **2.** *аб чым* і *пра што.* Быць сведчаннем чаго-н. *Парадак на пісьмовым стале сведчыць пра тое, што вучань акуратны.* **3.** *каму, па чым.* Даць паказанні на судзе. *С. па справе крадзяжу.* **4.** *што.* Афіцыйна пацвярджаць правільнасць чаго-н. *С. подпіс дырэктара.* ‖ *зак.* **засве́дчыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны (да 1 і 4 знач.).

**СВЕЖА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) нядаўна, толькі што, напр.: *свежавыгалены, свежаскошаны, свежаспечаны;* 2) у свежым выглядзе, напр.: *свежазамарожаны, свежамарожаны.*

**СВЕЖАВА́ЦЬ**, свяжую, свяжуеш, свяжуе; свяжуй; свежава́ны; *незак., каго-што* (разм.). Знімаць скуру з забітай жывёліны і разбіраць тушу. ‖ *зак.* **асвежава́ць**, асвяжую, асвяжуеш, асвяжуе; асвяжуй; асвежава́ны. ‖ *наз.* **свежава́нне**, -я, *н.*

**СВЕЖАМАРО́ЖАНЫ**, -ая, -ае. Замарожаны ў свежым выглядзе. *Свежамарожаная рыба.*

**СВЕЖАНІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Тое, што і *свежына.*

**СВЕ́ЖАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* свежы. **2.** Халаднаватае, чыстае паветра; прахалода. *У акно дыхнула свежасцю.* **3.** Свежы, здаровы выгляд. *С. шчок.*

**СВЕ́ЖЫ**, -ая, -ае. **1.** Толькі што падрыхтаваны або атрыманы, не сапсаваны, а таксама такі, якога не кранула апрацоўка (вэнджанне, саленне, кансерваванне і пад.). *Свежыя кветкі. Свежыя ягады. С. чай. Свежае мяса.* **2.** Які не быў у карыстанні, ва ўжыванні. *Свежыя фіранкі.* **3.** Пра ваду, паветра: чысты, нічым не забруджаны, які часта абнаўляецца. *У хаце свежае паветра. Свежая вада.* **4.** Халаднаваты, не вельмі цёплы. *Вечар досыць с. С. вецер.* **5.** Які не страціў сваёй яркасці, натуральнай афарбоўкі. *Фарба на сценах не пажухла, была як свежая. Свежае сена* (ярка-зялёнае). **6.** Выразны, новы або арыгінальны. *Свежыя ўражанні. Свежая думка. С. погляд на праблему.* **7.** Поўны сіл, энергіі, здаровы (пра чалавека). *Са свежымі сіламі працаваць* (адпачыўшы, паспаўшы). **8.** Які нядаўна ці толькі што з'явіўся; новы. *С. нумар штотыднёвіка. Свежыя чуткі* (пакуль нікому невядомыя). ‖ *наз.* **све́жасць**, -і, *ж. Не першай свежасці* (не свежы).

**СВЕЖЫНА́**, -ы́, *ж.* Свежае мяса, сала. *Напячы свежыны.*

**СВЕРБ**, -у, *м.* **1.** Адчуванне казытлівага нервовага раздражнення скуры. **2.** *перан.* Нецярплівае жаданне чаго-н., імкненне да чаго-н. *Пісьменніцкі с.*

**СВЕ́РДЗЕЛ**, -дла, *мн.* -длы, -длаў, *м.* Інструмент для свідравання круглых адтулін у дрэве, метале і пад. ‖ *прым.* **све́рдлавы**, -ая, -ае (спец.).

**СВЕТ**, -у, *М* све́це, *м.* **1.** Зямля з усім тым, што на ёй існуе; сусвет (у 2 знач.), а таксама людзі, якія насяляюць зямлю, і ўсё, што акружае чалавека. *Падарожжа вакол свету. Няпраўдай с. пройдзеш, ды назад не вернешся* (прыказка). **2.** Тое, што і *сусвет* (у 1 знач.). *Пакарыцелі свету.* **3.** *які.* Чалавечае грамадства, аб'яднанае пэўным грамадскім ладам, культурнымі і сацыяльна-гістарычнымі адзнакамі. *Антычны с. Адышоў у нябыт стары с.* (перан.: змяніўся лад жыцця). **4.** *чаго* або *які.* Асобная галіна жыцця, з'яў, прадметаў. *Жывёльны с. С. гукаў. Духоўны с. народа.* **5.** *чаго* або *які.* Якая-н. сфера, галіна дзейнасці людзей. *С. навукі.* **6.** Кола асоб, якія належаць да прывілеяваных класаў. *Вышэйшы с. Арыстакратычны с.* **7.** Зямное жыццё ў процілегласць незямному. ◊ **Выйсці ў свет** — быць апублікаваным. **Гэты свет** — зямны свет, жыццё як супрацьпастаўленне замагільнаму свету. **Зжыць са свету** — загубіць, знішчыць. **З усяго свету** — здалёк. **Ісці на той свет** — паміраць. **На чым свет стаіць** — вельмі моцна лаяць, крычаць. **Ні за што на свеце** — ні ў якім выпадку, ніколі. **Пусціць на свет** — нарадзіць. **Свет аб'ехаць** — пабыць у розных месцах. **Свет не бачыў** — незвычайна. **Такі свет настаў** — настала не тое жыццё. **Той свет** — замагільны свет як супрацьпастаўленне зямному свету, жыццю. **У белы свет як у капейку** (разм.) — без мэты, не ведаючы куды (ісці, ехаць і пад.). **Чуць свет** — раніцай, на золку.

**СВЕТААДЧУВА́ННЕ**, -я, *н.* (кніжн.). Успрыманне чалавекам навакольнага свету, што праяўляецца ў адпаведных дзеяннях, пачуццях, настроях.

**СВЕТАБУДО́ВА**, -ы, *ж.* (кніжн.). Тое, што і *сусвет* (у 1 знач.).

**СВЕТАПО́ГЛЯД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сістэма поглядаў на жыццё, прыроду і мастацтва. *Матэрыялістычны с.* ‖ *прым.* **светапо́глядны**, -ая, -ае.

**СВЕТАРАЗУМЕ́ННЕ**, -я, *н.* (кніжн.). Тое або іншае разуменне свету; сукупнасць поглядаў на свет (у 1 знач.).

**СВЕТАСУЗІРА́ННЕ**, -я, *н.* Сукупнасць перакананняў, поглядаў на свет (у 1 знач.); светаразуменне. ‖ *прым.* **светасузіра́льны**, -ая, -ае.

**СВЕТАЎСПРЫМА́ННЕ**, -я, *н.* Успрыманне чалавекам навакольнага свету (у 1 знач.).

**СВЕ́ТАЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыстасаванне для асвятлення хаты з дапамогай лучыны або смалістых корчыкаў; дзед[2] (уст.). *Запаліць с.* **2.** *перан.* Пра таго, хто нясе з сабой ісціну, асвету, свабоду, культуру, праўду. *Францыск Скарына — наш с.*

**СВЕТЛА...** *і* **СВЕТЛА-**. Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову «светлы» (у 3 і 4 знач.), напр.: *светлавалосы, светлатвары; светла-жоўты, светла-сіні.*

**СВЕТЛАВЫ́** *гл.* святло.

**СВЕ́ТЛАСЦЬ** *гл.* светлы.

**СВЕ́ТЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ярка свеціць. *Светлая лямпачка.* **2.** Добра асветлены, яркі. *Светлыя палацы. С. дзень.* **3.** Ясны, празрысты. *С. ручаёк.* **4.** Менш яркі па колеры ў параўнанні з іншымі, не цёмны. *Светлыя валасы. Светлыя фарбы.* **5.** Радасны, нічым неазмрочаны, незасмучаны. *Светлая будучыня. С. ўспамін.* **6.** Ясны, лагічны, праніклівы. *С. розум. Светлыя надзеі.* ‖ *наз.* **све́тласць**, -і, *ж.*

**СВЕТЛЫНЯ́**, -і́, *ж.* (разм.). Яркае асвятленне (звычайна месяцавае ці зорнае), пры якім усё добра відаць.

**СВЕТЛЯЧО́К** *гл.* святляк.

**СВЕ́ТНІК**, -у, *м.* Назва некаторых травяністых раслін сямейства гваздзіковых з ярка афарбаванымі кветкамі.

**СВЕ́ЦКІ**, -ая, -ае. **1.** Які адпавядае запатрабаванням свету[1] (у 6 знач.), які мае адносіны да яго. *Свецкае жыццё. Свецкія манеры.* **2.** Не царкоўны, не духоўны, грамадзянскі. *Свецкая літаратура.* ‖ *наз.* **све́цкасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**СВЕ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Палачка з тлушчавага рэчыва з кнотам усярэдзіне, якая служыць для асвятлення і іншых мэт. *Стэарынавая с. Паставіць свечку ў царкве. Запаліць свечку з водарам язміну. Сувенірная с.* **2.** Прыстасаванне для запальвання чаго-н. (спец.). *Запальныя свечкі рухавіка* (у рухавіках унутранага згарання). **3.** Медыцынскі прэпарат у выглядзе невялікай капсулы. **4.** Прамы ўзлёт, круты пад'ём уверх (спец.). **5.** Плямка тлушчу ў варыве. *С. ў супе.* ‖ *прым.* **све́чачны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**СВЁКАР**, -кра, *мн.* -кры, -краў, *м.* Бацька мужа. *Дай божа кожнай такога свёкра.*

**СВІ́ДАР**, -дра, *мн.* -дры, -драў, *м.* Тое, што і *бур.*

**СВІДРАВА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца свідраваннем. ‖ *ж.* **свідрава́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**СВІДРАВА́ЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак.* **1.** *што.* Рабіць свердлам адтуліны ў чым-н. **2.** *што.* Прабіваць, праточваць адтуліны, ход у чым-н (пра расліны, жывёл і пад.). *Дзяцел свідруе дрэва. Карэнне свідруе асфальт.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан., каго-што.* Мучыць, хвалявваць, прыносіць боль (пра думкі, пачуцці). *Непакой за сына свідруе душу і сэрца.* **4.** *перан.* Пільна ўглядацца. *С. вачамі, позіркам каго-н.* ‖ *зак.* **прасвідрава́ць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **свідрава́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **свідрава́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *С. станок.*

**СВІДРАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -він, *ж.* Адтуліна, зробленая свідраваннем. *Нафтавая с.* ‖ *прым.* **свідраві́нны**, -ая, -ае.

**СВІНАГАДО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Гадоўля свіней як галіна жывёлагадоўлі. ‖ *прым.* **свінагадо́ўчы**, -ая, -ае.

**СВІНАМА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Свіння, якая дае прыплод. ‖ *прым.* **свінама́тачны**, -ая, -ае.

**СВІНА́Р**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Працаўнік, які даглядае свіней. ‖ *ж.* **свіна́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак.

**СВІНА́РКА** *гл.* свінар.

**СВІНА́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Хлеў для свіней. ‖ *прым.* **свіна́рны**, -ая, -ае.

**СВІНАФЕ́РМА**, -ы, *мн.* -ы, -фе́рм *і* -аў, *ж.* Свінагадоўчая ферма.

**СВІНЕ́Ц**, -нцу́, *м.* Мяккі, вельмі цяжкі метал сінявата-шэрага колеру. *Здабыча свінцу.* ◊ **Сустрэць (ворага) свінцом** — ружэйным агнём, кулямі. **Як свінцом налітыя** — вельмі натруджаныя ад стомы, хваробы і пад. — аб адчуванні цяжару ў руках, нагах і пад. ‖ *прым.* **свінцо́вы**, -ая, -ае. *Свінцовая куля.*

**СВІНІ́НА**, -ы, *ж.* Свіное мяса як ежа. ‖ *памянш.* **свіні́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.).

**СВІ́НКА**[1] *гл.* свіння.

**СВІ́НКА**[2], -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Віруснае (пераважна дзіцячае) захворванне — запаленне калявушных залоз.

**СВІННЯ́**, -і́, *мн.* свінні *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) свінні́, свіне́й, *ж.* **1.** Парнакапытная млекакормячая жывёліна, свойскі від якой разводзяць для атрымання сала, мяса, скуры, шчаціння. **2.** *перан.* Пра таго, хто робіць каму-н. непрыемнасці, пра няўдзячнага, нявыхаванага чалавека (разм.). *С. ты, а не чалавек!* **3.** *перан.* Пра бруднага, неахайнага чалавека. ◊ **Падлажыць свінню** *каму* (разм., неадабр.) — зрабіць непрыемнасць. ‖ *памянш.* **сві́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (да 1 знач.). ○ **Марская свінка** — невялікая бясхвостая жывёліна-грызун. ‖ *прым.* **свіны́**, -áя, -óе (да 1 знач.).

**СВІ́НСКІ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Брудны, неахайны. *Жыць па-свінску* (прысл.). **2.** Непрыстойны, подлы, нізкі. *С. ўчынак.*

**СВІ́НСТВА**, -а, *н.* (разм.). **1.** Нізкі ўчынак, грубасць, непрыстойнасць. *Гэта с. з яго боку — не сказаць праўду.* **2.** Пра што-н. неахайнае, бруднае.

**СВІНТУ́Х**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* (разм., жарт.). Той, хто зрабіў што-н. па-свінску (гаворыцца звычайна з дружалюбна-дакорлівым адценнем). *Ну і с. жа ты!*

**СВІНУ́ХА**, -і, *ДМ* -ну́се, *мн.* -і, -ну́х, *ж.* Ядомы грыб сямейства свінухавых з пласціністай шапкай жоўта-бурага, ліловa-шэрага колеру; свінушка.

**СВІНУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Тое, што і *свінуха.*

**СВІНЦО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* свінец. **2.** *перан.* Цёмна-шэры, колеру свінцу. *Свінцовае неба.* **3.** *перан.* Цяжкі. *С. удар. Свінцовая галава* (пра боль і цяжар у галаве). *Свінцовае маўчанне* (панурае, гнятучае).

**СВІНЧА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. *ж.* **1.** Злітак свінцу, які выкарыстоўваецца ў бітах або як зброя ў кулачнай бойцы. **2.** Свінцовае грузіла на рыбалоўнай сетцы. **3.** Нагайка з уплеценым куском свінцу на канцы.

**СВІНЧО́**, -áці, *ДМ* -áці, *Т* -óм, *мн.* -áты, -áт, *н.* (разм.). Падсвінак.

**СВІНЫ́** *гл.* свіння.

**СВІНЯ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* (разм.). **1.** Забруджваць што-н., рабіць беспарадак. **2.** *перан.* Паскудзіць, шкодзіць каму-н. у чым-н. ‖ *зак.* **насвіня́чыць**, -чу, -чыш, -чыць.

**СВІ́РАН**, -рна, *мн.* -рны, -рнаў, *м.* Халодны будынак, прызначаны для захоўвання збожжа, мукі, іншых прадуктаў, а таксама рэчаў. ‖ *прым.* **сві́рнавы**, -ая, -ае.

**СВІРЭ́ПІЦА**, -ы, *ж.* Аднагадовая культурная расліна сямейства крыжакветных, з насення якой здабываецца тэхнічны алей.

**СВІРЭ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* Пустазелле, палявая шматгадовая расліна з жоўтымі кветкамі.

**СВІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* **1.** *гл.* свістаць. **2.** *каму.* Моцна з размаху спляжыць (разм.). *С. кіем па плячах.* **3.** *каго-што.* Украсці (разм.). *С. грошы.*

**СВІСТ**, -у, *М* -сце, *м.* **1.** Рэзкі, высокі гук, які ўтвараецца моцным выдыханнем паветра праз сціснутыя губы ці зубы, а таксама пры дапамозе свістка ці іншага прыстасавання. *Ад свісту паліцэйскага спынілася машына.* **2.** Рэзкі, высокі гук, які ўтвараецца парай, паветрам, што вырываецца з сілай праз вузкую адтуліну. *С. паравоза.* **3.** Голас некаторых птушак і жывёл такога тэмбру і вышыні. *Салаўіны с.* **4.** Гук, які ўтварае прадмет пры хуткім рассяканні паветра. *С. куль.* ○ **Мастацкі свіст** — высвістванне мелодыі.

**СВІСТАПЛЯ́СКА**, -і, *ДМ* -пля́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* (разм.). **1.** Нястрыманае, бурнае праяўленне чаго-н. адмоўнага. *Пачалася с., якой свет не бачыў.* **2.** Пра поўную неразбярыху ў чым-н., з чым-н.

**СВІСТА́ЦЬ**, свішчу́, сві́шчаш, сві́шча; свішчы́; *незак.* **1.** Утвараць свіст. *С. у свісток. С. у пальцы. Свішча паравоз.* **2.** (1 і 2 ас. не ўжыв.). Ліцца з сілаю (пра вадкасць). *З крана свішча вада.* **3.** *перан.* Не працаваць, гультаяваць (разм.). *Цэлы месяц свістала, а грады травой заraslі.* ◊ **Вецер свішча ў кішэнях** (разм., жарт.) — няма грошай. **Свістаць у кулак** (разм., жарт.) — растраціўшыся, сядзець без грошай. ‖ *аднакр.* **сві́снуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1 і 2 знач.).

**СВІСТО́К**, -тка́, *мн.* -ткі́, -ткóў, *м.* **1.** Прыстасаванне, пры дапамозе якога ўтвараецца свіст. *Зрабіць с. Міліцэйскі с.* **2.** Свіст, які ўтвараецца пры дапамозе такога прыстасавання. *Ноччу раздаўся трывожны с.* ‖ *прым.* **свістко́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СВІСТУ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* (разм.). **1.** Невялікі свісток з саломы, травы і пад.; пішчалка. **2.** Дзіцячая цацка — свісток.

**СВІСТУ́Н**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Той, хто любіць свістаць. **2.** *перан.* Чалавек, які многа гаворыць, а робіць мала, які несур'ёзна адносіцца да справы; балбатун. ‖ *ж.* **свісту́ха**, -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х.

**СВІСЦЁЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). **1.** Духавы народны музычны інструмент у выглядзе дудкі, зроблены з дрэва або чароту. **2.** Тое, што і *свістулька.*

**СВІСЦЯ́ЧЫ**, -ая, -ае (спец.). Які ўтвараецца пры праходжанні струменя паветра праз вузкую шчыліну ў месцы збліжэння пярэдняй часткі языка з верхнімі пярэднімі зубамі. *С. зычны гук. Мяккі с.* (наз.).

**СВІ́ТА**[1], -ы, *ДМ* сві́це, *мн.* -ы, світ, *ж.* **1.** Асобы, якія суправаджаюць якую-н. важную, высокапастаўленую асобу. *С. караля.* **2.** *перан.* Асобы, якія пастаянна, увесь час ходзяць за кім-н. (разм.). *Цэлая с. ходзіць за сястрой* (многа паклоннікаў, ухажораў). ‖ *прым.* **сві́цкі**, -ая, -ае.

**СВІ́ТА**[2], -ы, *ДМ* сві́це, *мн.* -ы, світ, *ж.* Доўгая сялянская верхняя вопратка з даматканага сукна. ‖ *прым.* **сві́тавы**, -ая, -ае.

**СВІТА́НАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Тое, што і *світанне.* ‖ *прым.* **світа́нкавы**, -ая, -ае.

**СВІТА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Час перад усходам сонца; самы пачатак раніцы. *Выгнаць карову ў поле на світанні.* **2.** *перан.* Ранні перыяд, пачатак чаго-н. *С. майго юнацтва.* ‖ *прым.* **світа́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СВІ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Цёплая вязаная кофта без засцежак.

**СВІТА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *незак.* **1.** *безас.* Пачынаць развідніваццa (аб набліжэнні ўсходу сонца). *Зімой світае позна.* **2.** Пачынацца, наступаць (пра дзень). *Пасля ночы світае дзень.*

**СВІ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Тое, што і *світа*[2]. ‖ *прым.* **сві́ткавы**, -ая, -ае.

**СВІЦЕ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., свіці́цца; *незак.* **1.** Быць бачным, праглядацца праз што-н. *Праз бярэзнік свіцілася поле.* **2.** Будучы рэдкім, не густым, прапускаць праз сябе святло. *Занавеска на акне свіцілася.* **3.** *перан.* Пра твар, вочы, знешні выгляд чалавека: адлюстроўваць якія-н. пачуцці. *Дзіця свіцілася ад радасці.*

**СВІШЧ**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Загана ў чым-н. у выглядзе адтуліны, сітавіны. *С. у арэхах.* **2.** Скрытая пустата, ракавіна ў металічным ліцці (спец.). **3.** Ненармальны канал, які ўтвараецца ў тканках арганізма з выхадам на паверхню цела; фістула. *С. на губе.* ‖ *прым.* **сві́шчавы**, -ая, -ае.

**СВІШЧАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Са свішчамі (у 1 знач.). *С. арэх.* ‖ *наз.* **свішчава́тасць**, -і, *ж.*

**СВОЕАСАБЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Не падобны да іншых, які мае свае адметныя ўласцівасці, арыгінальны. *С. характар. Своеасаблівая асоба.* **2.** Які сваімі рысамі, асаблівасцямі падобны да каго-, чаго-н., які нагадвае што-н. *Над сцежкай с. тунэль з верхавін бяроз.* ‖ *наз.* **своеасаблі́васць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**СВОЕКАРЫ́СЛІВЫ**, -ая, -ае. Які дбае толькі пра ўласную выгаду; карыслівы. *С. чалавек. Своекарыслівыя разлікі.* ‖ *наз.* **своекары́слівасць**, -і, *ж.*

**СВОЕЎЛА́ДНЫ**, -ая, -ае. Які робіць што-н. па сваёй волі, па сваім нораве; свавольны. *С. чалавек.* ‖ *наз.* **своеўла́дства**, -а, *н.*

**СВОЕЧАСО́ВЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца, робіцца ў вызначаны час. *С. прыезд хуткай дапамогі. С. збор ураджаю. Своечасова* (прысл.) *аказаць медыцынскую дапамогу.* ‖ *наз.* **своечасо́васць**, -і, *ж.*

**СВОЙ**, свайго́, *м.;* свая́, сваёй, *ж.;* сваё, свайго́, *н.;* *мн.* свае́, сваі́х. **1.** *займ. прынал.* Які належыць сабе, мае адносіны да сябе, з'яўляецца асабістым набыткам. *Пабудаваць сваё жыллё. Любіць сваю вёску. Наведаць сваіх землякоў. Выказаць свае адносіны да падзей. Жыць са сваіх грошай. Свая хатка — родная матка* (прыказка). **2.** Уласцівы толькі дадзенай асобе або прадмету; своеасаблівы. *У гэтай прапанове ёсць свае перавагі.* **3.** Уласцівы чаму-н., прызначаны менавіта для дадзенай акалічнасці, прадмета. *На ўсё свая пара. На ўсё ёсць свае законы.* **4.** Родны або які знаходзіцца ў сваяцкіх, блізкіх ці сяброўскіх адносінах. *С. калі не дасць, то і не абгаворыць* (прыказка). *С. таварыш. Пайсці да сваіх* (наз.). **5.** *у знач. наз.* **сваё**, свайго́, *н.* Тое, што належыць, уласціва каму-, чаму-н. (пра думку, справу, правы, прывычкі і пад.). *Дамагчыся свайго. Ён сваё дакажа* (даб'ецца таго, да чаго імкнецца). ◊ **Называць рэчы сваімі імёнамі** — гаварыць адкрыта, не хаваючы праўды. **Не адступаць ад свайго** — даказваць праваты. **Не пры сваім розуме** — пра псіхічна ненармальнага чалавека. **У свой час** — своечасова.

**СВО́ЙСКІ**, -ая, -ае. **1.** Не дзікі, выгадаваны чалавекам (пра жывёл, птушак). *С. конь. Свойскія качкі.* **2.** Спакойны, не брыклівы. *Свойскае жарабя. Свойскія ласяняты.* **3.** Не куплёны, выраблены дома, прыгатаваны ў хатніх умовах. *Свойскай работы ніткі.* **4.** Пра чалавека: які спагадліва, па-таварыску адносіцца да людзей (разм.). *С. сусед.*

**СВО́ЛАЧ**, -ы, *мн.* сво́лачы, свалачэ́й, *ж.* (разм., лаянк.). **1.** Паганец, подлы чалавек. **2.** *зб.* Зброд, подлыя людзі. *Развялося ўсякай сволачы.*

**СВЯДО́МАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* свядомы. **2.** Чалавечая здольнасць да ўзнаўлення рэчаіснасці ў мысленні; псіхічная дзейнасць як адлюстраванне рэчаіснасці. *Быццё вызначае с.* **3.** Стан чалавека пры здаровым розуме і памяці, здольнасць кантраляваць свае ўчынкі і пачуцці. *Страціць с.* **4.** Думка, пачуццё, поўнае разуменне чаго-н., уменне ацэньваць з'явы жыцця, разбірацца ў рэчаіснасці. *С. мас. С. учынкаў.*

**СВЯДО́МЫ**, -ая, -ае. **1.** Які валодае свядомасцю (у 2 знач.). *Чалавек — істота свядомая.* **2.** Які правільна ацэньвае і разумее ўсё навакольнае. *Свядомыя адносіны да працы. Свядомая палітычная барацьба.* **3.** Які дзейнічае наўмысна, знарок, абдумана. *С. падман.* ‖ *наз.* **свядо́масць**, -і, *ж.*

**СВЯЖЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Станавіцца свяжэйшым (*гл.* свежы ў 4 знач.), халаднейшым. *Пад раніцу свяжэе* (безас.). **2.** Станавіцца больш яркім, набываць больш здаровы выгляд. *Пабыўшы ў лесе, чалавек свяжэе.* ‖ *зак.* **пасвяжэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е.

**СВЯКРО́Ў**, свекрыві́, *мн.* свякро́ві, свекрыве́й, *ж.* Маці мужа.

**СВЯКРУ́ХА**, -і, *ДМ* -ру́се, *мн.* -і, -ру́х, *ж.* (разм.). Тое, што і *свякроў.*

**СВЯНЦІ́ЦЬ**, свянчу́, све́нціш, све́нціць; све́нчаны; *незак., што.* Тое, што і *свяціць*[2]. ‖ *зак.* **пасвянці́ць**, -свянчу́, -све́нціш, -све́нціць; -све́нчаны.

**СВЯНЦО́НЫ**, -ая, -ае. Пасвячоны, асвячоны. *Свянцоная вада. С. хлеб.*

**СВЯРБЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -бі́ць, *незак.* **1.** Выклікаць адчуванне казытлівага болю, адчуваць гэты боль. *Ад крапівы пякуць і свярбяць ногі. Цела свярбіць.* **2.** *перан., безас.* Пра неадольнае жаданне зрабіць што-н. *Цэлы дзень свярбела паехаць па грыбы.* ◊ **Рукі свярбяць** (разм.) — 1) хочацца пабіцца; 2) хочацца прыкласці рукі да якой-н. справы. **Язык свярбіць** *у каго* (разм.) — хто-н. не можа стрымацца, каб не сказаць што-н.

**СВЯРДЗЁЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* Невялікі свердзел. *С. заўсёды патрэбны ў гаспадарцы.*

**СВЯ́ТА**, -а, *М* свя́це, *мн.* -ы, свят, *н.* **1.** Урачысты дзень, які адзначаецца традыцыйна ў гонар або ў памяць якой-н. выдатнай падзеі, даты, асобы і інш. *С. Перамогі. С. Нараджэння Хрыста. С. Новага года.* **2.** Выхадны, нерабочы дзень. **3.** Урачыстасць з прычыны чаго-н. *Сямейнае с. Спартыўнае с.* **4.** *перан.* Пачуццё радасці, асалоды, задавальнення, выкліканае чым-н. прыемным. *На сэрцы с.* ◊ **Будзе і на нашай вуліцы свята** — спадзяванне на лепшае ў будучым, на здзяйсненне чаго-н. ‖ *прым.* **свято́чны**, -ая, -ае.

**СВЯТА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Свяшчэннік, які вядзе царкоўныя богаслужэбныя трэбы (хрысціны, вянчанне, паніхіды, споведзь і інш.). ‖ *прым.* **свята́рскі**, -ая, -ае.

**СВЯ́ТАСЦЬ** *гл.* святы.

**СВЯТАТА́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн.). Чалавек, які чыніць, учыніў святатацтва.

**СВЯТАТА́ЦТВА**, -а, *н.* (кніжн.). **1.** Знеўважанне царкоўнай святыні. **2.** *перан.* Знеўважанне чаго-н. дарагога, святога, запаветнага. ‖ *прым.* **святата́цкі**, -ая, -ае.

**СВЯТАТА́ЦТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* (кніжн.). Учыняць святатацтва.

**СВЯТАЯ́ННІК**, -у, *м.* Травяністая расліна сямейства святаяннікавых з жоўтымі кветкамі; зверабой[2]. ‖ *прым.* **святая́ннікавы**, -ая, -ае.

**СВЯТКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; *незак., што* і *без дап.* Адзначаць свята або якую-н. падзею, знамянальны дзень. *С. Новы год. С. юбілей пісьменніка.* ‖ *наз.* **адсвяткава́ць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны. ‖ *наз.* **святкава́нне**, -я, *н.*

**СВЯТЛАБО́ЯЗЬ**, -і, *ж.* Павышаная да болю адчувальнасць вока да святла.

**СВЯТЛАКО́ПІЯ**, -і, *мн.* -і, -пій, *ж.* Копія чарцяжа, зробленая на святлоадчувальнай паперы.

**СВЯТЛАЛЮ́БНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *святлолюбівы.* ‖ *наз.* **святлалю́бнасць**, -і, *ж.*

**СВЯТЛАСІ́ЛА**, -ы, *ж.* (спец.). Адносіны асветленасці адлюстравання, якое ствараецца аптычнай сістэмай, да яркасці прадмета, што адлюстроўваецца.

**СВЯТЛАТЭ́ХНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па святлатэхніцы. *Інжынер-с.*

**СВЯТЛАТЭ́ХНІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* Галіна навукі і тэхнікі — тэорыя і практыка спосабаў прымянення святла, а таксама пераўтварэння энергіі святла ў іншыя віды энергіі. ‖ *прым.* **святлотэхні́чны**, -ая, -ае.

**СВЯТЛАФО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Светлавы сігнальны ліхтар з чырвоным, жоўтым і зялёным або толькі з чырвоным і зялёным сігналам для рэгулявання руху на вуліцах і дарогах. ‖ *прым.* **святлафо́рны**, -ая, -ае.

**СВЯТЛАЦЕ́НЬ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Размеркаванне розных па яркасці колераў і адценняў, светлых і ценявых штрыхоў для перадачы аб'ёмнасці малюнка. ‖ *прым.* **святлоценявы́**, -а́я, -о́е.

**СВЯТЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Станавіцца светлым або больш светлым. *Валасы пасля мыцця святлеюць.* **2.** Пра надыход раніцы, дня. *На дварэ святлее* (безас.). **3.** *перан.* Станавіцца радасным, ласкавым. *Твар сябра святлее.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Пра думкі, свядомасць: рабіцца больш ясным, нармальным. *Думкі сталі с.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Віднецца (пра што-н. светлае). *У гушчары ельніку святлела купка бяроз.* ‖ *зак.* **пасвятле́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е *і* **прасвятле́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 3 і 4 знач.); *наз.* **прасвятле́нне**, -я, *н.* (паводле 3 і 4 знач.).

**СВЯТЛІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ліц, *ж.* (уст.). Светлы, чысты пакой у хаце. ‖ *прым.* **святлі́чны**, -ая, -ае.

**СВЯТЛО́**, -а́, *н.* **1.** Прамяністая энергія, якая робіць навакольны свет бачным; электрамагнітныя хвалі ў інтэрвале частот, што ўспрымаюцца зрокам. *Сонечнае с. Пры святле месяца. С. свечкі.* **2.** Тая або іншая крыніца асвятлення. *Запаліць с. Уключыць электрычнае с. Стаць бліжэй да святла. Устаць да святла* (да ўсходу сонца, да світання). **3.** Светлае месца, блік на на карціне, у адрозненне ад ценю. *Кантрасты святла і ценю.* **4.** *перан., чаго.* Тое, што робіць зразумелым навакольны свет, што дае пачатак чаму-н. радаснаму, робіць шчаслівым жыццё. *С. яго ідэй відаць ва ўсіх кутках зямлі. С. дабра.* **5.** *перан.* Ззянне, бляск вачэй, радасна-ўзбуджаны выраз твару пад уплывам якога-н. пачуцця. *На твары відаць было с. пяшчоты.* ◊ **Праліць святло** *на што* (кніжн.) — растлумачыць што-н. **У святле** *чаго* — зыходзячы з пэўнага пункту гледжання на каго-, што-н. **У святле** *якім* (выстаўляць, падаваць і пад.) — у якім-н. выглядзе. **У чорным святле** (бачыць, падаваць што-н.) — змрочным, непрыглядным. ‖ *прым.* **светлавы́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.). *С. сігнал.*

**СВЯТЛОАДЧУВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. У фотатэхніцы: які мае ўласцівасць адчуваць святло, рэагаваць на святло. *Святлоадчувальная плёнка.* ‖ *наз.* **святлоадчува́льнасць**, -і, *ж.*

**СВЯТЛОКАПІРАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які служыць для атрымання святлакопій. *С. апарат.*

**СВЯТЛОЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які добра расце і развіваецца толькі пры нармальным сонечным святле. *Сасна — дрэва святлолюбівае.* ‖ *наз.* **святлолюбі́васць**, -і, *ж.*

**СВЯТЛОЛЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Лячэнне штучна атрыманымі інфрачырвонымі, бачнымі і ўльтрафіялетавымі прамянямі. ‖ *наз.* **святлолячэ́бны**, -ая, -ае.

**СВЯТЛОМАСКІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* Маскіроўка асветленых аб'ектаў. ‖ *прым.* **святломаскіро́вачны**, -ая, -ае.

**СВЯТЛОТЭХНІ́ЧНЫ** *гл.* святлатэхніка.

**СВЯТЛОЦЕНЯВЫ́** *гл.* святлацень.

**СВЯТЛЯ́К**, светляка́, *мн.* светлякі́, светляко́ў, *м.* Невялікае насякомае сямейства жукоў, якое свеціцца ў цемры. ‖ *памянш.* **светлячо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.*

**СВЯТО́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* свята. **2.** Не будзённы, прыгожы, прыбраны. *С. касцюм.* **3.** *перан.* Урачыста-ўзнёслы, шчаслівы. *С. настрой.*

**СВЯТО́ША**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -то́ш (іран.). Прытворна-набожны чалавек; ханжа.

**СВЯ́ТЦЫ**, -аў. Царкоўная кніга з пералікам свят і святых па днях іх памінання.

**СВЯТЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Надзелены боскай сілай, вышэйшай дасканаласцю і чыстатой. *Святая Тройца. Святая вада.* **2.** *у знач. наз.* **святы́**, -о́га, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м.*, **свята́я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* У хрысціян: чалавек, які ўсё жыццё прысвяціў служэнню богу і рэлігіі, а пасля смерці прызнаны царквой нябесным заступнікам веруючых. *Абразы са святымі.* **3.** *перан.* Бездакорны ў сваім жыцці, паводзінах, высокамаральны. *Не такі ён с., як здаецца* (не такі бязгрэшны). **4.** Прасякнуты высокімі пачуццямі, узвышаны, чысты, высакародны (высок.). *Святая любоў да Радзімы.* **5.** Сапраўдны, запаветны, выключны па сваёй важнасці, велічны. *С. абавязак дзяцей — паважаць бацькоў.* ◊ **Святая святых** (высок.) — пра нешта самае дарагое, велічнае. ‖ *наз.* **свя́тасць**, -і, *ж.*

**СВЯТЫ́НЯ**, -і, *мн.* -ты́нь *і* -яў, *ж.* **1.** Тое, што з'яўляецца асабліва дарагім, што ахоўваецца і шануецца (высок.). *Народныя святыні. Брэсцкая крэпасць — наша с.* **2.** Прадмет або месца рэлігійнага пакланення. *Святыні ў ахвяру не прыносяцца.*

**СВЯЦЕ́ЙШЫ**, -ая, -ае. Састаўная частка тытула праваслаўных патрыярхаў і сінода, а таксама рымскіх пап.

**СВЯЦІ́ЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** *ДМ* -е. Нябеснае цела, якое выпраменьвае святло ў касмічную прастору або свеціць адбітым святлом. *Дзённае с.* (Сонца). *Начное с.* (Месяц). **2.** *ДМ* -у; *чаго* або *якое; перан.* Выдатны чалавек, які набыў шырокую вядомасць у пэўнай сферы дзейнасці і праславіў навуку і культуру сваім талентам (высок.). *С. навукі.*

**СВЯЦІ́ЛІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *н.* **1.** Храм (уст.). *С. аракулаў.* **2.** *перан.* Месца, якое выклікае пачуццё глыбокай павагі і пашаны (высок.). *С. навукі* (цэнтр навуковай думкі).

**СВЯЦІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які выкарыстоўваецца для асвятлення. *Свяцільнае масла.*

**СВЯЦІ́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* (уст.). **1.** Асвятляльная прылада ў выглядзе невялікай бляшанай лямпы, у якую наліваласся масла, тлушч і пад. **2.** Лампада, плошка з запаленым маслам.

**СВЯЦІ́ЦЦА**, свячу́ся, све́цішся, све́ціцца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Выпраменьваць святло. *На небе свяціліся зоркі. У вокнах свяціліся агеньчыкі.* **2.** *перан.* Пра твар, вочы: іскрыцца радасцю, святлом, ажыўляцца ад шчасця. *Твар бабулі свяціўся дабратой.* ‖ *наз.* **свячэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**СВЯЦІ́ЦЬ**[1], свячу́, све́ціш, све́ціць; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Выпраменьваць святло. *Цэлы дзень свеціць сонца. Свеціць, ды не грэе* (загадка). **2.** Накіроўваць святло так, каб каму-н. было ўсё відаць. *С. ліхтарыкам.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Быць азораным радасцю, шчасцем і пад. (разм.). *Вочы свяцілі радасцю.* ‖ *зак.* **пасвяці́ць**, -свячу́, -све́ціш, -све́ціць (да 1 і 2 знач.).

**СВЯЦІ́ЦЬ**[2], свячу́, све́ціш, све́ціць; *незак., каго-што.* Выконваць над кім-н., чым-н. царкоўны абрад асвячэння. *С. ваду. С. хату.* ‖ *зак.* **асвяці́ць**, асвячу́, асвяціш, асвяціць; асвячо́ны.

**СВЯШЧЭННАДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Выконваць які-н. царкоўны абрад. **2.** *перан.* Рабіць што-н. урачыста і паважна (іран.). ‖ *наз.* **свяшчэннадзе́йства**, -а, *н.*

**СВЯШЧЭННАСЛУЖЫ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Асоба, якая адпраўляе набажэнства і трэбы. ‖ *прым.* **свяшчэннаслужы́цельскі**, -ая, -ае.

**СВЯШЧЭ́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *святар.* ‖ *прым.* **свяшчэ́нніцкі**, -ая, -ае.

**СВЯШЧЭ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Выключна важны, асабліва пачэсны, святы (у 4 знач.; высок.). *С. абавязак. С. доўг.* **2.** У рэлігіі: які валодае святасцю, адпавядае рэлігійнаму ідэалу; боскі. *С. абрад. Свяшчэннае пісанне.* **3.** Недатыкальны, непарушны. *Свяшчэнная граніца нашай краіны.*

**СЕА́НС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Паказ або выкананне чаго-н. у пэўны прамежак часу без перапынку. *С. адначасовай гульні. Тры сеансы інгаляцыі.* **2.** Адзін з некалькіх (у розны час дня) паказаў фільма ў кінатэатры. *Вячэрні с.*

**СЕВАЗВАРО́Т**, -у, *М* -ро́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* У сельскай гаспадарцы: паслядоўнае чаргаванне сельскагаспадарчых культур на пэўных зямельных участках. *Кармавыя севазвароты.* ‖ *прым.* **севазваро́тны**, -ая, -ае.

**СЕГМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У геаметрыі: частка круга, абмежаваная дугой і яе хордай, а таксама частка шара, аддзеленая сякучай плоскасцю. **2.** Адзін з многіх аднародных членікаў цела некаторых жывёл, а таксама адзін з некалькіх аднародных участкаў якога-н. органа (спец.). *С. пазваночніка.* ‖ *прым.* **сегме́нтны**, -ая, -ае.

**СЕГРЭГА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). **1.** Адзін з відаў расавай дыскрымінацыі — абмежаванне ў правах на падставе колеру скуры або нацыянальнай прыналежнасці. **2.** Неаднароднасць хімічнага саставу металічных сплаваў, што ўзнікла пры іх крышталізацыі (спец.). ‖ *прым.* **сегрэгацы́йны**, -ая, -ае.

**СЕ́ДАЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Жэрдка або некалькі жэрдак у куратніку, на якія садзяцца ноччу куры; курасадня. **2.** *перан.* Месца, дзе чалавек пражыў многа гадоў; абжыты куток. *Пакінуць роднае с.*

**СЕДЛАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* сядлаць. **2.** Спосаб, якім асядланы конь (спец.). *Паходнае с.*

**СЕДЛАВІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -він, *ж.* **1.** Прагіб у спіне жывёлін (спец.). **2.** Невялікая прадаўгаватая ўпадзіна паміж дзвюма высокімі вяршынямі ў горным хрыбце.

**СЕДЛАВЫ** *гл.* сядло.

**СЕЗО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адна з чатырох пор года. *Зімовы с. Не па сезоне апрануцца.* **2.** Частка года, якая з'яўляецца найбольш прыдатнай для якой-н. работы, адпачынку і пад. *С. адпачынкаў. Канцэртны с. філармоніі. На чарніцы яшчэ не с.* (не паспелі). *Купальны с.*

**СЕЗО́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Рабочы на сезонных работах. ‖ *ж.* **сезо́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**СЕЗО́ННЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да пэўнага сезона. *Сезонныя рабочыя. Сезоннае адзенне.* ‖ *наз.* **сезо́ннасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**СЕ́ЙБІТ**, -а, *М* -біце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, хто сее зерне. *С. трывожыцца за лёс ураджаю.* **2.** *перан.* Чалавек, які распаўсюджвае ідэі, веды. *С. разумнага, добрага, вечнага.*

**СЕЙМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Назва парламента ў некаторых дзяржавах. ‖ *прым.* **се́ймавы**, -ая, -ае.

**СЕ́ЙНЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікае марское судна для лоўлі рыбы спецыяльным невадам.

**СЕЙСМА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) сейсмічны, напр.: *сейсмаактыўнасць, сейсмазона, сейсмапрафіляванне, сейсмаразведка, сейсмастойкі;* 2) які мае адносіны да сейсмаграфіі, напр.: *сейсмазандзіраванне, сейсмазапісваючы;* 3) які мае адносіны да сейсмалогіі, напр.: *сейсмагеалогія, сейсмагідраакустыка, сейсмастанцыя.*

**СЕЙСМАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Запіс ваганняў зямной паверхні сейсмографам. ‖ *прым.* **сейсмаграфі́чны**, -ая, -ае. *Сейсмаграфічная станцыя.*

**СЕЙСМАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел геафізікі, які вывучае ваганні зямной паверхні. ‖ *прым.* **сейсмалагі́чны**, -ая, -ае.

**СЕЙСМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да ваганняў зямной паверхні, да землетрасенняў. *Сейсмічныя хвалі. Сейсмічныя з'явы. Сейсмічная станцыя. Сейсмічная разведка* (вывучэнне будовы зямной кары шляхам назірання за штучна ўзбуджальнымі пруткімі хвалямі).

**СЕЙСМО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для запісу ваганняў зямной паверхні ў час землетрасенняў або пры выбухах.

**СЕЙСМО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне сейсмалогіі.

**СЕЙФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Незгаральная металічная шафа для захоўвання каштоўных папер, дакументаў і пад. ‖ *прым.* **се́йфавы**, -ая, -ае.

**СЕ́КАНС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У трыганаметрыі: функцыя вугла, у прамавугольным трохвугольніку роўная адносінам гіпатэнузы да катэта, які прылягае да гэтага вугла.

**СЕКАНУ́ЦЬ** *гл.* сячы.

**СЕКА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікія садовыя нажніцы, якімі абразаюць галінкі дрэў і кустоў, наразаюць чаранкі. ‖ *прым.* **сека́тарны**, -ая, -ае.

**СЕКВЕ́СТР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). У цывільным праве: забарона карыстання якой-н. маёмасцю, якая накладаецца органамі ўлады. *Накласці с.*

**СЕКВЕСТРАВА́ЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -рава́ны; *зак. і незак., што* (кніжн.). Накласці (накладаць) секвестр на што-н.

**СЕКВО́Я**, -і, *мн.* -і, -во́й, *ж.* Гіганцкае рэліктавае хваёвае дрэва, якое расце ў Паўночнай Амерыцы.

**СЕКС**, -у, *м.* Сукупнасць псіхічных рэакцый, перажыванняў і ўчынкаў, звязаных з праяўленнем і задавальненнем палавых патрэбнасцей. ‖ *прым.* **сексуа́льны**, -ая, -ае.

**СЕКСАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая вывучае біёлага-медыцынскі, сацыяльны і псіхалагічны аспекты палавога жыцця. ‖ *прым.* **сексалагі́чны**, -ая, -ае.

**СЕКСО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па сексалогіі.

**СЕ́КСТА**, -ы, *мн.* -ы, секст *і* -аў, *ж.* У музыцы: інтэрвал шырынёй у шэсць ступеней. *Вялікая с. Малая с.*

**СЕКСТА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Вугламерны інструмент, які выкарыстоўваецца ў мараходстве, авіяцыі і інш.

**СЕКСТЭ́Т**, -а, *М* -тэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Музычны твор для шасці выканаўцаў з самастойнымі партыямі для кожнага. **2.** Ансамбль з шасці выканаўцаў такога твора. *С. цымбалаў.* ‖ *прым.* **секстэ́тны**, -ая, -ае.

**СЕКСУА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* секс. **2.** Тое, што і *пачуццёвы* (у 2 знач.). ‖ *наз.* **сексуа́льнасць**, -і, *ж.*

**СЕ́КТА**, -ы, *ДМ* -кце, *мн.* -ы, сект *і* -аў, *ж.* **1.** Рэлігійнае аб'яднанне, што адасобілася ад якога-н. веравучэння і супрацьстаіць яму. *С. духабораў.* **2.** *перан.* Наогул група асоб, якая замкнулася ў сваіх вузкіх, дробязных інтарэсах (неадабр.).

**СЕКТА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Паслядоўнік секты (у 1 знач.). **2.** *перан.* Чалавек, які схільны да сектанцтва (у 2 знач.). ‖ *ж.* **секта́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **секта́нцкі**, -ая, -ае.

**СЕКТА́НЦТВА**, -а, *н.* Агульная назва руху адасаблення ад пануючага веравучэння, утварэння сектаў (у 1 знач.).

**СЕ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У геаметрыі: частка круга, абмежаваная дугой і двума радыусамі. **2.** Участак, абмежаваны радыяльнымі лініямі. *С. стадыёна. С. абстрэлу.* **3.** Аддзел установы, арганізацыі, які мае пэўную спецыялізацыю. *Культурна-масавы с. С. уліку.* **4.** Частка народнай гаспадаркі, якая мае пэўныя эканамічныя і сацыяльныя адзнакі. *Прамысловы с.* ‖ *прым.* **се́ктарны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **сектара́льны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**СЕКУ́НДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -кунд *і* -аў, *ж.* **1.** Адзінка вымярэння часу, роўная 1/60 часткі мінуты ў Міжнароднай сістэме адзінак. **2.** У матэматыцы: адзінка вымярэння вуглоў, роўная 1/3600 часткі градуса. **3.** У музыцы: інтэрвал шырынёй у дзве ступені. *Малая с. Вялікая с.* ◊ **Адну секунду!** — вельмі нядоўга. ‖ *прым.* **секу́ндны**, -ая, -ае.

**СЕКУНДАМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для дакладнага вымярэння часу ў долях секунды, секундах, мінутах і гадзінах. *Электрычны с.* ‖ *прым.* **секундаме́рны**, -ая, -ае.

**СЕКУНДА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пасрэднік, які суправаджае кожнага з удзельнікаў дуэлі, яе сведка. **2.** У спорце: пасрэднік і памочнік удзельніка спартыўнага спаборніцтва (напр., у шахматах, боксе). ‖ *прым.* **секунда́нцкі**, -ая, -ае.

**СЕ́КЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Падраздзяленне якой-н. установы, арганізацыі, канферэнцыі, з'езда і пад. з пэўнай спецыялізацыяй. *Спартыўная с. клуба. Пасяджэнне секцыі па культуры мовы.* **2.** Частка збудавання, канструкцыі, якая складаецца з некалькіх дэталей. *С. паравога ацяплення. С. дзевяціпавярховага дома.* ‖ *прым.* **секцы́йны**, -ая, -ае.

**СЕ́КЧЫ** *гл.* сячы.

**СЕ́КЧЫСЯ** *гл.* сячыся.

**СЕ́ЛЕВЫ** *гл.* сель.

**СЕЛЕ́КТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Электрамагнітны апарат, уключаны ў сецы з іншымі апаратамі для ажыццяўлення апаратыўнай тэлефоннай сувязі некалькіх пунктаў з цэнтрам. *Сувязь па селектары.* ‖ *прым.* **селе́ктарны**, -ая, -ае.

**СЕЛЕ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука аб метадах стварэння гатункаў і гібрыдаў раслін, парод жывёл і культур мікраарганізмаў. **2.** Паляпшэнне гатункаў раслін або парод жывёл і вывядзенне новых гатункаў і парод шляхам штучнага адбору, скрыжавання. ‖ *прым.* **селекцы́йны**, -ая, -ае. *Селекцыйная станцыя. Селекцыйнае насенне* (палепшанае).

**СЕЛЕКЦЫЯНЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па селекцыі.

**СЕЛЕНА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да Месяца, напр.: *селенаграфія, селенадэзія, селеналогія, селенацэнтрычны.*

**СЕЛЬ**, -ю, *м.* Грязе-каменны бурны паток з гор, які ўтвараецца ў выніку лівяў, раставання снегу і іншых прычын. *З гор сышоў с.* ‖ *прым.* **се́левы**, -ая, -ае. *С. вал.*

**СЕЛЬ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову «сельскі», напр.: *сельсавет, сельмаг* (сельскі магазін).

**СЕЛЬДЭРЭ́Й**, -ю, *м.* Агародная расліна сямейства парасонавых, лісце і карэнне якой выкарыстоўваюцца як прыправа. || *прым.* **сельдэрэ́евы**, -ая, -ае.

**СЕЛЬКА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: сельскі карэспандэнт. *Нататкі селькара.* || *ж.* **селька́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. || *прым.* **селька́раўскі**, -ая, -ае.

**СЕЛЬСАВЕ́Т**, -а, *М* -ве́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: сельскі Савет народных дэпутатаў — прадстаўнічы орган дзяржаўнай улады ў сельскім раёне. *Звярнуцца за даведкай у с.* || *прым.* **сельсаве́цкі**, -ая, -ае.

**СЕЛЬСКАГАСПАДА́РЧЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да сельскай гаспадаркі. *Сельскагаспадарчая тэхніка.*

**СЕ́ЛЬСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сяло. **2.** Які мае адносіны да жыцця і дзейнасці вёскі, вясковы. *С. клуб. Сельская мясцовасць.* ○ **Сельская гаспадарка** — галіна народнай гаспадаркі, якая займаецца вырошчваннем сельскагаспадарчых культур і развядзеннем жывёл для атрымання прадукцыі раслінаводства і жывёлагадоўлі, а таксама першасная перапрацоўка гэтай прадукцыі.

**СЕ́ЛЬТАРСКІ**, -ая, -ае. У выразе: **се́льтарская вада́** або **се́льтарская**, -ай, *ж.* — мінеральная саляна-вуглякіслая вада, а таксама аналагічная штучная вада. *Выпіць сельтарскай.*

**СЕЛЯДЗЕ́Ц**, -дца́, *мн.* -дцы́, -дцо́ў, *м.* Невялікая марская прамысловая рыба, якая ўжыв. ў ежу ў засоленым ці вэнджаным выглядзе. *Сярэднесалёны с.* ◊ **Як у бочцы селядцоў** — пра мноства людзей у цесным памяшканні (разм.). || *прым.* **селядцо́вы**, -ая, -ае. *С. промысел. Сямейства селядцовых* (наз.).

**СЕЛЯДЗЕ́ЧНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Прадаўгаватая талерка для падачы на стол селядцоў.

**СЕЛЯДЗЁЎКА**, -і, *ДМ* -дзёўцы, *мн.* -і, -дзёвак, *ж.* (разм.). Бочка ад селядцоў.

**СЕЛЯЗЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Крывятворны орган, размешчаны ў брушной поласці арганізма пазваночных жывёл і чалавека, які ўдзельнічае ў абмене рэчываў і выконвае ахоўныя функцыі. || *прым.* **селязёначны**, -ая, -ае.

**СЕЛЯНІ́Н**, -а, *мн.* сяляне *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) селяні́ны, сяля́н, *м.* Жыхар вёскі, які заняты апрацоўкай зямлі, вырошчваннем сельскагаспадарчых культур і развядзеннем сельскагаспадарчай жывёлы як сваёй асноўнай работай. || *ж.* **сяля́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **сяля́нскі**, -ая, -ае.

**СЕМ**, сямі́, *Т* сямю́, *ліч. кольк.* Лік, лічба і колькасць 7. *С. разоў адмерай, а раз адрэж* (прыказка). || *парадк.* **сёмы**, -ая, -ае.

**СЕМА́НТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** У мовазнаўстве: значэнне, сэнс (моўнай адзінкі). *С. слова. С. сказа. С. граматычных форм.* **2.** Тое, што і *семасіялогія.* || *прым.* **семанты́чны**, -ая, -ае.

**СЕМАСІЯЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел мовазнаўства, які вывучае значэнні слоў і выразаў, а таксама змены гэтых значэнняў. || *прым.* **семасіялагі́чны**, -ая, -ае.

**СЕМАФО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сігнальнае прыстасаванне на чыгунцы, якое паведамляе, што пуць свабодны або заняты. **2.** У флоце: спосаб зрокавай сігналізацыі флажкамі, рукамі або пры дыпамозе спецыяльнага апарата. || *прым.* **семафо́рны**, -ая, -ае.

**СЕ́МДЗЕСЯТ**, сямі́дзесяці, *Т* сямю́дзесяццю, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 70. *С. гадоў народнаму музею. Паехаць за с. кіламетраў у горад. Пад с. гадоў каму-н.* (хутка будзе 70 гадоў). || *парадк.* **сямідзяся́ты**, -ая, -ае.

**СЕМЕ́СТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Навучальнае паўгоддзе ў вышэйшых ці спецыяльных сярэдніх навучальных установах. || *прым.* **семе́стравы**, -ая, -ае.

**СЕ́МЕЧКА**, -а, *мн.* -і, -чак, *н.* **1.** *гл.* семя. **2.** Адно семя ў плодзе якой-н. расліны; зярнятка. *С. гарбуза. С. грушы.* || *прым.* **се́мечкавы**, -ая, -ае.

**СЕМІЁТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Навука, якая вывучае найбольш агульныя ўласцівасці знакаў і знакавых сістэм. || *прым.* **семіяты́чны**, -ая, -ае.

**СЕМІНА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Групавыя практычныя заняткі пад кіраўніцтвам выкладчыка ў вышэйшай навучальнай установе. **2.** Мерапрыемства, групавыя заняткі, арганізаваныя для якой-н. спецыяльнай падрыхтоўкі, для павышэння кваліфікацыі і пад. *Міжнародны навуковы с.* || *прым.* **семіна́рскі**, -ая, -ае.

**СЕМІНАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вучань семінарыі. || *прым.* **семінары́сцкі**, -ая, -ае.

**СЕМІНА́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Назва некаторых спецыяльных сярэдніх навучальных устаноў. *Настаўніцкая с.* (для падрыхтоўкі настаўнікаў; уст.). *Духоўная с.* (для падрыхтоўкі святароў). || *прым.* **семіна́рскі**, -ая, -ае.

**СЕМІТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Агульная назва навук, якія вывучаюць семіцкія мовы і культуры. || *прым.* **семіталагі́чны**, -ая, -ае.

**СЕМІТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па семіталогіі.

**СЕМІ́ТЫ**, -аў, *адз.* семі́т, -а, *М* -міце, *м.* Група блізкіх па мовах народаў, былых або цяперашніх насельнікаў паўднёва-заходняй Азіі і паўночнай Афрыкі, да якіх адносяцца старажытныя вавіланяне, асірыйцы, фінікійцы і іншыя, а таксама сучасныя народы: арабы, яўрэі, сірыйцы, эфіопы. || *ж.* **семі́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **семі́цкі**, -ая, -ае *і* **семіты́чны**, -ая, -ае.

**СЕМСО́Т**, сямісо́т, *Т* сямюста́мі, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 700. || *парадк.* **сямісо́ты**, -ая, -ае.

**СЕ́МЯ**, се́мя *і* се́мені, *Д* се́мю *і* се́мені, *В* се́мя, *Т* се́мем *і* се́менем, *М* (аб) се́мі *і* се́мені, *н.* **1.** Зачатак расліны, які складаецца з зародка і абалонкі, зерне. *Льняное с.* **2.** *перан.* Зародак, крыніца чаго-н. *С. навукі засявай!* **3.** Тое, што і *сперма.* || *памянш.* **се́мечка**, -а, *мн.* -і, -чак, *н.* (да 1 знач.). || *прым.* **се́мявы**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.). *Семявыя залозы.*

**СЕМЯ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да семя (у 1 і 3 знач.), напр.: *семявывяржэнне, семядольны, семязавязь, семязліццё, семяправод, семяўваход, семяўтварэнне.*

**СЕМЯДО́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, -ль, *ж.* (спец.). Зародак лісця ў семені. || *прым.* **семядо́льны**, -ая, -ае.

**СЕМЯЗА́ВЯЗЬ**, -і, *ж.* (спец.). Зародак семені.

**СЕМ'ЯНІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сямейны чалавек. **2.** Той, хто мае неабходныя для сямейнага жыцця якасці. *Бачу, што ты будзеш добрым сем'янінам.* || *ж.* **сем'яні́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**СЕМЯННІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (спец.). Мужчынская палавая залоза. || *прым.* **семяннíко́вы**, -ая, -ае.

**СЕМЯРЫ́К**, -мерыка́, *мн.* -мерыкі́, -мерыко́ў, *м.* **1.** Старая руская мера (ліку, вагі, аб'ёму і пад.) або прадмет, якія змяшчаюць у сабе сем якіх-н. адзінак, складаецца з сямі частак. *С. пшаніцы.* **2.** Сем коней у адной запрэжцы. || *прым.* **семяры́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СЕ́НА**, -а, *н.* Скошаная і высушаная трава, якая ідзе на корм жывёле. || *памянш.-ласк.* **сянцо́**, -а́, *н.* || *прым.* **сянны́**, -а́я, -о́е.

**СЕНА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да сена, напр.: *сеназбіральнік, сенакасілка, сенапагрузчык, сенанарыхтоўка, сенапад'ёмнік, сенапрэс, сенаразбіўка, сенасушылка, сенасховішча, сенафураж.*

**СЕНАЖА́ЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Месца, дзе расце трава на сена; луг. *Скарыстаць пад с. Пакасіць сенажаці.* **2.** Час касьбы. *Пачалася с.* || *прым.* **сенажа́тны**, -ая, -ае.

**СЕНАКАСІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Сельскагаспадарчая машына для касьбы травы.

**СЕНАКО́С**, -у, *м.* **1.** Касьба травы на сена. *Хутка пачнецца с.* **2.** Час уборкі сена. *Вясёлая пара лета — с.* **3.** Месца касьбы травы. *С. наш далёка на балоце.* || *прым.* **сенако́сны**, -ая, -ае.

**СЕНАНАРЫХТО́ЎКІ**, -то́вак. Планавая нарыхтоўка сена. || *прым.* **сенанарыхто́ўчы**, -ая, -ае.

**СЕНАСУШЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Установка для штучнай сушкі травы.

**СЕНА́Т**, -а, *М* -на́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дзяржаўны савет, вышэйшы орган кіравання ў Старажытным Рыме. **2.** Вышэйшая судова-адміністрацыйная ўстанова

ў царскай Расіі. **3.** Верхняя заканадаўчая палата парламента ў некаторых дзяржавах. ‖ *прым.* **сена́цкі**, -ая, -ае.

**СЕНА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Член сената. ‖ *прым.* **сена́тарскі**, -ая, -ае.

**СЕНАЎБО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* Уборка сена. ‖ *прым.* **сенаўбо́рачны**, -ая, -ае.

**СЕНА́ЦКІ** *гл.* сенат.

**СЕНБЕРНА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Парода даўгашэрсных вялікіх і дужых сабак.

**СЕ́НІ**, сяне́й. Памяшканне паміж жылой часткай дома і ганкам у вясковых хатах. *С. без падлогі.* ‖ *памянш.* **се́нцы**, сяне́ц. ‖ *прым.* **се́нечны**, -ая, -ае *і* **се́нны**, -ая, -ае.

**СЕННІКО́ВЫ** *гл.* сяннік.

**СЕ́НСАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Першасны вымяральны пераўтваральнік, датчык. **2.** Адчувальны элемент. ‖ *прым.* **се́нсарны**, -ая, -ае. *С. пераключальнік.*

**СЕНСАЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які выклікае сенсацыю. *Сенсацыйныя падзеі. Сенсацыйная навіна.* ‖ *наз.* **сенсацы́йнасць**, -і, *ж.*

**СЕНСА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Моцнае ўражанне ад якой-н. падзеі. *Кніга выклікала сенсацыю.* **2.** Падзея, паведамленне, якія выклікаюць такое ўражанне. *Газетная с.*

**СЕНСО́РНЫ**, -ая, -ае (спец.). Звязаны з пачуццямі, з органамі пачуццяў. *Сенсорнае выхаванне. Сенсорная рэакцыя.*

**СЕНСУАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Філасофскі кірунак, які прызнае адчуванне, успрыманне адзінай крыніцай пазнання. ‖ *прым.* **сенсуалісты́чны**, -ая, -ае.

**СЕНСУАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік сенсуалізму. ‖ *ж.* **сенсуалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**СЕНСУА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Заснаваны на суб'ектыўных пачуццях, адчуваннях. ‖ *наз.* **сенсуа́льнасць**, -і, *ж.*

**СЕНТЫМЕНТАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Кірунак у літаратуры і мастацтве 18 — пачатку 19 ст., які характарызуецца асаблівай увагай да духоўнага жыцця чалавека, пачуццёвасцю і ідэалізаваным паказам людзей, жыццёвых сітуацый, прыроды. **2.** Сентыментальныя (у 2 знач.) адносіны да чаго-н. (кніжн.). ‖ *прым.* **сентыменталі́сцкі**, -ая, -ае.

**СЕНТЫМЕНТАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прадстаўнік сентыменталізму (у 1 знач.). ‖ *прым.* **сентыменталі́сцкі**, -ая, -ае.

**СЕНТЫМЕНТА́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* сентыментальны. **2.** Сентыментальныя паводзіны і ўчынкі. *Не трэба сентыментальнасцей.*

**СЕНТЫМЕНТА́ЛЬНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Быць сентыментальным (у 2 знач.). **2.** *перан., з кім.* Абыходзіцца з кім-н. празмерна мякка, паблажліва. *Не сентыментальнічай з гэтым гультаём!*

**СЕНТЫМЕНТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Заснаваны на прынцыпах сентыменталізму (у 1 знач.). *С. раман.* **2.** Залішне чуллівы, пяшчотны, здольны лёгка расчуліць. *С. верш. С. лад думак. Сентыментальная сцэна.* ‖ *наз.* **сентымента́льнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**СЕНТЭНЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Павучальны, які мае ў сабе сентэнцыю. *С. раман.* ‖ *наз.* **сентэнцы́йнасць**, -і, *ж.*

**СЕНТЭ́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (кніжн.). Выслоўе павучальнага характару. *Выслухаць чые-н. сентэнцыі.*

**СЕ́НЦЫ** *гл.* сені.

**СЕНЬЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У феадальным грамадстве: землеўладальнік, які меў неабмежаваную ўладу на сваёй тэрыторыі. **2.** У іспанамоўных краінах: форма ветлівага звароту да мужчыны. ‖ *ж.* **сеньёра**, -ы, *мн.* -ы, -ёр (да 2 знач.).

**СЕНЬЯРЫ́ТА**, -ы, *ДМ* -ры́це, *мн.* -ы, -ры́т, *ж.* У іспанамоўных краінах: форма ветлівага звароту (упамінання) да дзяўчыны.

**СЕПАРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апарат для вылучэння аднаго якога-н. рэчыва з саставу другога (напр., смятанкі з малака). ‖ *прым.* **сепара́тарны**, -ая, -ае.

**СЕПАРА́ТНЫ**, -ая, -ае. Асобны, адасоблены ад іншых. *С. дагавор. С. мір* (заключаны без ведама і згоды сваіх ваенных саюзнікаў). ‖ *наз.* **сепара́тнасць**, -і, *ж.*

**СЕПАРАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Імкненне да аддзялення, адасаблення. *Палітычны с.* ‖ *прым.* **сепараты́сцкі**, -ая, -ае.

**СЕПАРАТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Прыхільнік сепаратызму. ‖ *ж.* **сепараты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **сепараты́сцкі**, -ая, -ае.

**СЕПАРАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Прасякнуты сепаратызмам. *Сепаратыўныя імкненні.* ‖ *наз.* **сепараты́ўнасць**, -і, *ж.*

**СЕ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Хімічны элемент — лёгкае на загаранне рэчыва жоўтага ці шараватага колеру, якое выкарыстоўваецца ў тэхніцы і медыцыне. **2.** Жоўта-карычневае тлустае рэчыва, якое ўтвараецца на сценках вушнога канала. ‖ *прым.* **се́рны**, -ая, -ае.

**СЕРАБРО́**, -а́, *н.* **1.** Каштоўны бліскучы метал шаравата-белага колеру. **2.** *зб.* Вырабы з гэтага металу. *Сталовае с.* (посуд, сталовыя прыборы). *Упрыгажэнні з серабра. Нашы спартсмены заваявалі с.* (сярэбраныя медалі; разм.). **3.** Дробная разменная манета са сплаву з гэтым металам або нікелем. *Заплаціць серабром.*

**СЕРАБРЫ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які колерам і бляскам нагадвае серабро. *С. іней. Серабрыстая луска. Серабрыстыя скроні* (з сівізной). *Серабрыстая тапапя* (таполя, у якой лісце з ніжняга боку пакрыта пушком). **2.** *перан.* Меладычна-звонкі, высокага тону. *С. голас жаўранка.* ‖ *наз.* **серабры́стасць**, -і, *ж.*

**СЕРАБРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́цца; *незак.* **1.** Зіхацець сярэбраным бляскам. *Серабрыцца бяроза на сонцы.* **2.** Сівець, зіхацець сівізной. *Скроні серабрацца.*

**СЕРАБРЫ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; -ро́ны; *незак., што.* Пакрываць тонкім слоем серабра; надаваць чаму-н. серабрысты колер, бляск. *С. відэльцы. Месяц серабрыў хвалі.* ‖ *зак.* **высерабрыць**, -ру, -рыш, -рыць; -раны *і* **пасерабры́ць**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; пасярэ́браны. ‖ *наз.* **серабрэ́нне**, -я, *н.*

**СЕРАВАДАРО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Газ з рэзкім непрыемным пахам, які ўтвараецца пры гніенні бялковых рэчываў. ‖ *прым.* **серавадаро́дны**, -ая, -ае.

**СЕРАВУГЛЯРО́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* Бясколерная, лёгкая на загаранне ядавітая вадкасць з непрыемным пахам. ‖ *прым.* **серавугляро́дны**, -ая, -ае.

**СЕРАДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *мн.* се́рады *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) серады́, се́рад, *ж.* Трэці (пасля нядзелі) дзень тыдня.

**СЕРАДНЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** *гіст.* Селянін-аднаасобнік, які меў зямельны ўчастак, апрацоўваў яго ўласнымі сіламі без наёмнай працы і па сваім маёмасным становішчы знаходзіўся паміж бедняком і кулаком. **2.** Чалавек сярэдніх здольнасцей, які нічым асаблівым не вылучаецца. ‖ *ж.* **серадня́чка**, -і, *ДМ* -чцы, -чак (да 1 знач.). ‖ *прым.* **серадня́цкі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СЕРА́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** У краінах Усходу — палац султана. **2.** Тое, што і *гарэм.*

**СЕРАФІ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У хрысціянскай і іўдзейскай рэлігіі — шасцікрылы анёл вышэйшага рангу.

**СЕРБАЛУЖЫЧА́НЕ**, -ча́н, *адз.* сербалужыча́нін, -а, *м.* Тое, што і *лужычане.* ‖ *ж.* **сербалужыча́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **сербалу́жыцкі**, -ая, -ае. *Сербалужыцкая літаратура* (на верхня- і ніжнялужыцкай літаратурных мовах).

**СЕРБАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** *гл.* сёрбаць. **2.** *чаго.* З'есці трохі чаго-н. вадкага (разм.). *С. булёну.*

**СЕ́РБЫ**, -аў, *адз.* серб, -а, *м.* Паўднёваславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Сербіі. ‖ *ж.* **се́рбка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак. ‖ *прым.* **се́рбскі**, -ая, -ае.

**СЕРВА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Род шафы, нізкі буфет для посуду і сталовай бялізны. ‖ *прым.* **серва́нтны**, -ая, -ае.

**СЕРВЕЛА́Т**, -у, *М* -ла́це, *м.* Гатунак вэнджана-варанай каўбасы.

**СЕРВІ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Поўны набор сталовага або чайнага посуду на пэўную колькасць чалавек. ‖ *прым.* **сервí́зны**, -ая, -ае.

**СЕРВІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак. і незак., што.* Падрыхтаваць (падрыхтоўваць) стол для (абеду, вячэры і пад.), расстаўляючы посуд і стравы ў пэўным парадку. *С. стол.* ‖ *наз.* **сервірава́нне**, -я, *н. і* **сервіро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **сервіро́вачны**, -ая, -ае.

**СЕРВІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* сервіраваць. **2.** Убранне стала (посуд, сталовыя прыборы і пад.). *Багатая с.*

**СЕРДАВА́ЦЬ**, сярдую, сярдуеш, сярдуе; сярдуй; *незак.* (разм.). Адчуваць злосць, раздражненне, гнеў на каго-н. *С. на сына.*

**СЕРДАЛІ́К**, -у, *м.* Мінерал бледна-ружовага, чырвонага ці аранжавага колеру, разнавіднасць халцэдону. ‖ *прым.* **сердалі́кавы**, -ая, -ае.

**СЕРНАКІ́СЛЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да солей сернай кіслаты. *Сернакіслы барый.*

**СЕ́РНЫ** *гл.* сера.

**СЕРП**, сярпá, *мн.* сярпы́, сярпóў, *м.* **1.** Сельскагаспадарчая ручная прылада ў выглядзе выгнутага дробна назубленага нажа для зрэзвання злакаў з кораня. *Назубіць с.* **2.** *перан.* Пра тое, што мае форму такога прадмета. *С. месяца* (месяц у пачатковай або апошняй фазе).

**СЕРПАНЦІ́Н**, -у, *м.* **1.** Скрутак доўгай вузкай стужкі з каляровай паперы (выкарыстоўваецца на балях, карнавалах і пад.). **2.** *перан.* Звілістая горная дарога. ‖ *прым.* **серпанці́нны**, -ая, -ае.

**СЕРПАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Які мае выгляд сярпа. *Серпападобныя крылы. Серпападобныя струкі фасолі.* ‖ *наз.* **серпападо́бнасць**, -і, *ж.*

**СЕРПЕНТА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Гадавальнік, у якім утрымліваюць ядавітых змей і забіраюць ад іх яд.

**СЕРСО́**, *нескл., н.* Гульня з тонкім лёгкім абручом, які падкідваюць і ловяць спецыяльнай палачкай, а таксама прылады для гэтай гульні (абруч і палачкі). *Гуляць у с.*

**СЕРТЫФІКА́Т**, -а, *М* -кáце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Афіцыйнае пісьмовае пасведчанне аб чым-н. *С. якасці.* **2.** Пазыковае фінансавае абавязацельства дзяржаўных органаў, а таксама назва білетаў некаторых дзяржаўных пазык. ‖ *прым.* **сертыфіка́тны**, -ая, -ае.

**СЕРЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які выпускаецца серыямі па пэўным узоры. *С. выпуск швейных машын.* ‖ *наз.* **серы́йнасць**, -і, *ж.*

**СЕ́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* **1.** Шэраг якіх-н. аднародных прадметаў, якія маюць агульную прымету, аб'яднаны агульным прызначэннем, складаюць адну групу. *С. артыкулаў. С. станкоў. С. вопытаў.* **2.** Разрад, катэгорыя каштоўных папер, дакументаў. *С. і нумар пашпарта.* **3.** Адна з частак вялікага кінафільма, якая дэманструецца самастойна. *Кінафільм у чатырох серыях.*

**СЕРЭНА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -нáд, *ж.* **1.** У сярэдневяковай Заходняй Еўропе (першапачаткова ў Іспаніі і Італіі): прывітальная песня, якая выконвалася звычайна пад акампанемент лютні, мандаліны або гітары ў гонар каханай, пад яе акном. **2.** Лірычны музычны твор тыпу сюіты для інструментальнага ансамбля.

**СЕ́СІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* **1.** Пасяджэнні розных прадстаўнічых органаў і калегіяльных устаноў, якія праводзяцца перыядычна, а таксама перыяд такіх пасяджэнняў. *С. ААН.* **2.** Перыяд здачы экзаменаў у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. *Зімовая с.* ‖ *прым.* **сесіённы**, -ая, -ае.

**СЕ́СЦІ**, ся́ду, ся́дзеш, ся́дзе; сеў, сéла; сядзь; *зак.* **1.** Прыняць сядзячае становішча. *Сесці на лаўку. С. пад бярозай.* **2.** *у што* і *на што.* Заняць месца, размясціцца дзе-н. (для паездкі). *Сесці ў самалёт. С. ў аўтобус.* **3.** *за што, на што* і *з інф.* Пачаць якую-н. справу, работу, прыняўшы сядзячае становішча. *С. за даклад. С. за кнігу. С. на камбайн. С. на тэлефон* (*перан.* званіць доўга і ў многія месцы; разм.). **4.** Быць пазбаўленым волі, змешчаным у турму згодна з прыгаворам суда. **5.** Спыніць рух, палёт; апусціцца з вышыні. *Матылёк сеў на кветку. Сонца села за лес. Самалёт сеў на аэрадром.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Асесці, паглыбіцца ў зямлю. *Сцяна села.* **7.** *на што.* Абмежаваць сябе ў чым-н., падпарадкаваць сябе якому-н. рэжыму. *С. на дыету. С. на адну зарплату.* **8.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выскачыць, з'явіцца (пра фурункул і пад.; разм.). *На руку села балячка.* **9.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Страціць сілу, напружанне, стаць слабейшым (пра пару, электрычны ток і пад.). *У машыне сеў акумулятар. Голас сеў* (стаў хрыплым). ‖ *незак.* **садзі́цца**, саджу́ся, сáдзішся, сáдзіцца.

**СЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Прыстасаванне з перакрыжаваных нітак, дроту, вяровак і пад. рознага прызначэння. *Плесці сетку на рыбу. Валейбольная с. С. пчаляра.* **2.** Сумка для нашэння прадуктаў, дробных рэчаў і пад., сплеценая з нітак, вяровак, шнуркоў і пад. *Злажыць у сетку яблыкі.* **3.** *адз.; чаго* або *якая.* Сукупнасць размешчаных дзе-н. і звязаных адзінай сістэмай устаноў, прадпрыемстваў, дарог, ліній сувязі і пад. *С. дамоў адпачынку. С. бальніц. Гандлёвая с.* **4.** Разлінееная, звычайна ў клетку, паверхня. *Градусная с. Геаграфічная с.* (лініі, якія абазначаюць даўготы і шыроты). **5.** Расклад, схема, шкала (спец.). *Тарыфная с.* ‖ *памянш.* **се́тачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **се́тачны**, -ая, -ае (да 1, 2 і 5 знач.) *і* **се́ткавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СЕТКАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Які мае выгляд сеткі; які з'яўляецца сеткай (у 1 знач.). *Сеткаватыя крылы. С. ўзор. С. чарпак.*

**СЕТКАКРЫ́ЛЫЯ**, -ых, *адз.* -ае, -ага, *н.* Атрад насякомых з крыламі, пакрытымі густой сеткай дробных жылак.

**СЕЎРУЖЫ́НЫ** *гл.* сяўруга.

**СЕ́ЧА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (уст., высок.). Бой, бітва. *Крывавая с.*

**СЕ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* **1.** Дробна нарэзаная салома, трава на корм жывёле. *Запарыць сечкі карове.* **2.** Драблёныя крупы. *Ячная с. Грэчневая с.* **3.** Шырокі паўкруглы нож для ссякання капусты.

**СЕ́ЯЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Машына для пасеву насення. *Трактарная с.* ‖ *прым.* **се́ялкавы**, -ая, -ае.

**СЕ́ЯЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік сельскай гаспадаркі, які займаецца пасевам насення. ‖ *ж.* **се́яльшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**СЕ́ЯНЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Расліна, што вырасла з насення (у адрозненне ад саджанца).

**СЕ́ЯНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (разм.). Дробна прасеяная мука.

**СЕ́ЯЦЬ**, сéю, сéеш, сéе; сей; сéяны; *незак. што.* **1.** і *без дап.* Раскідваць насенне на падрыхтаваную для сяўбы глебу. *С. пшаніцу.* **2.** *перан.* Распаўсюджваць сярод людзей якія-н. думкі, настрой і пад. (высок.). *С. разумнае, добрае, вечнае. С. веру ў лепшае жыццё.* **3.** Тое, што і *прасейваць. С. муку.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра дробны дождж, снег: ісці. *Цэлую раніцу сеяў дождж.* **5.** Засяваць (якую-н. плошчу зямлі; разм.). *С. поле пад лесам.* ‖ *зак.* **пасе́яць**, -сéю, -сéеш, -сéе; -се́й; -сéяны (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **се́янне**, -я, *н. і* **пасе́ў**, -сéву, *м.* (да 1 знач.). *Сеянне дрэнных чутак. Сеянне мукі. Пасеў азімых закончаны.*

**СЁДЗЕЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Майстар, які робіць сёдлы. ‖ *прым.* **сёдзельніцкі**, -ая, -ае.

**СЁЕ-ТО́Е**, сягó-тагó, *займ. неазнач., н.* **1.** Нешта, некаторыя рэчы, нямногае. *Узяць з сабой сёе-тое.* **2.** Штосьці, што не жадаюць называць. *Распытаць пра сёе-тое.*

**СЁЙ-ТО́Й**, сягó-тагó, *займ. неазнач., м.* (разм.). **1.** Некаторыя, нямногія людзі. *Сёй-той не прыехаў на сустрэчу.* **2.** Нехта (каго не жадаюць называць). *Неабходна папярэдзіць сяго-таго.*

**СЁЛЕТА**, *прысл.* У гэтым годзе, гэты год. *С. ўнучак у школу пойдзе.*

**СЁЛЕТНІ**, -яя, -яе. Гэтага года. *С. ўраджай.*

**СЁМГА**, -і, *ДМ* -мзе, *ж.* Каштоўная прамысловая рыба сямейства ласасёвых з мясам ружовага колеру. ‖ *прым.* **сёмгавы**, -ая, -ае.

**СЁМУХА**, -і, *ДМ* -мусе, *ж.* Адно са свят праваслаўнай царквы, якое святкуецца ў пяцідзясяты дзень (праз сем тыдняў) пасля Вялікадня.

**СЁМЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сем. **2.** *ж.* Які атрымліваецца пры дзяленні на сем. *Сёмая частка.* **3.** *у знач. наз.* **сёмая**, -ай, *ж.* Сёмая частка чаго-н. *Адна сёмая.*

**СЁННЯ**, *прысл.* **1.** У гэты дзень. *С. паеду ў Полацк.* **2.** *перан.* Цяпер. *С. студэнт, а заўтра настаўнік.* **3.** *у знач. наз., нескл., н.* Цяперашні дзень. *На с. ўзяла білеты ў кіно. На с.* (перан.: у дадзены момант). *Наша с.* (перан.: цяперашняе жыццё). ◊ **Не сёння, дык заўтра; не сягоння — заўтра** (разм.) — вельмі хутка, у бліжэйшы час. ‖ *прым.* **сённяшні** *і* **сягóнняшні**, -яя, -яе. *На с. дзень* (на сёння). ◊ **Жыць сённяшнім днём** — не думаючы пра будучае.

**СЁРБАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* і *без дап.* **1.** Есці вадкую страву або піць, прысмоктваючы. *С. зацірку.* **2.** Піць невялікімі глыткамі час ад часу. *Гаворачы, госць з апетытам сёрбаў кампот.* ‖ *зак.* **вы́сер-**

**баць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *аднакр.* **сербану́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́ *і* **сёрбнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (разм.). ‖ *наз.* **сёрбанне**, -я, *н.*

**СЁРБНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** *гл.* сёрбаць. **2.** Тое, што і *сербануць* (у 2 знач.).

**СІБАРЫ́Т**, -а, *М* -ры́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Распешчаны, раздураны раскошаю чалавек. ‖ *ж.* **сібары́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **сібары́цкі**, -ая, -ае.

**СІБАРЫ́ТНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (кніжн.). Весці жыццё, уласцівае сібарыту.

**СІБАРЫ́ЦТВА**, -а, *н.* (кніжн.). Паводзіны сібарыта.

**СІБЕ́РНЫ**, -ая, -ае (разм.) **1.** Жорсткі, бязлітасны. *С. чалавек.* **2.** Вельмі моцны, рэзкі, люты (пра вецер, мароз і пад.). *С. вецер.*

**СІБІРА́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Жыхар або ўраджэнец Сібіры. ‖ *ж.* **сібіра́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **сібіра́цкі**, -ая, -ае.

**СІВАБАРО́ДЫ**, -ая, -ае. З сівой барадой. *С. стары.*

**СІВАВАЛО́СЫ**, -ая, -ае. З сівымі валасамі.

**СІВАВАРО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Пералётная птушка сямейства сіваваронкавых з яркім зеленавата-блакітным апярэннем; сіваграк.

**СІВАВУ́СЫ**, -ая, -ае. З сівымі вусамі.

**СІВАГРА́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Тое, што і *сіваваронка.*

**СІВАДУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Помесь чорна-бурай і рыжай лісы, а таксама футра гэтага звярка.

**СІВА́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* (разм.). Тое, што і *сіўка.*

**СІ́ВЕРАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* (разм.). Рабіцца шурпатым, грубець ад ветру, холаду (звычайна пра скуру на твары, руках і пад.). ‖ *зак.* **абсі́верацць**, -ае; -аны.

**СІВЕ́ЦЬ**, -éю, -éеш, -éе; *незак.* Рабіцца сівым. *Сівеюць скроні.* ‖ *зак.* **пасіве́ць**, -éю, -éеш, -éе; *наз.* **пасіве́нне**, -я, *н. і* **ссіве́ць**, -éю, -éеш, -éе.

**СІВІЗНА́**, -ы́, *ж.* **1.** Сівыя валасы. *С. ў валасах. Дажыць да сівізны* (да старасці). **2.** *перан.* Старажытнасць, даўніна. *С. вякоў.* ◊ **Сівізна ў бараду, а чорт у рабрыну** (прыказка) — пра старога, які заляцаецца да жанчын.

**СІВУ́ХА**, -і, *ДМ* -вусе, *ж.* (разм.) Дрэнна ачышчаная гарэлка. ‖ *прым.* **сіву́шны**, -ая, -ае. *Сівушнае масла* (пабочны прадукт перагонкі спірту).

**СІВУ́Ч**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Вялікая млекакормячая марская жывёліна сямейства вушатых цюленяў. ‖ *прым.* **сіву́чы**, -ая, -ае.

**СІВЫ́**, -áя, -óе. **1.** Белы, серабрысты, які страціў афарбоўку (пра валасы); пасівелы, колеру попелу. *Сівыя вусы. Сівая галава. Сівая жанчына.* **2.** З прымессю белай шэрсці (пра футра). *С. каўнер. С. каракуль.* **3.** *перан.* Які мае адносіны да старажытнасці, далёкага мінулага. *Сівыя вякі.* ‖ *наз.* **сівасць**, -і, *ж.*

**СІГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Паўночная прэснаводная прамысловая рыба сямейства ласасёвых. ‖ *прым.* **сіго́вы**, -ая, -ае.

**СІГА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* Скакаць; узнімацца. *Вавёрка сігала з сасны на сасну.* ‖ *аднакр.* **сігану́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́.

**СІГНА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Умоўны знак (зрокавы або гукавы) для перадачы на адлегласць якога-н. паведамлення, распараджэння, каманды і пад. *С. дакладнага часу. С. сірэны. Прагучаў с. хуткай дапамогі.* **2.** *перан.* Тое, што з'яўляецца прычынай, служыць штуршком да якога-н. дзеяння ў адказ. *Сігналам да шырокай дыскусіі паслужыў газетны артыкул.* **3.** *перан.* Папярэджанне, паведамленне аб чым-н. непажаданым. *С. з інспекцыі.* **4.** Імпульс або група імпульсаў электрамагнітнай энергіі. ‖ *прым.* **сігна́льны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). ○ **Першая сігнальная сістэма** (спец.) — сістэма ўмоўнарэфлекторных сувязей, якія фарміруюцца ў жывёлы і чалавека пры ўздзеянні канкрэтных раздражняльнікаў. **Другая сігнальная сістэма** (спец.) — уласцівая чалавеку сістэма ўмоўнарэфлекторных сувязей, якія фарміруюцца пры ўздзеянні моўных сігналаў.

**СІГНАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; *зак. і незак.* **1.** Падаць (падаваць) сігнал. *С. ракетай. С. аб набліжэнні цягніка.* **2.** *перан.* Папярэдзіць (папярэджваць), паведаміць (паведамляць) пра што-н. непажаданае. *С. аб праліках і недахопах.* ‖ *зак.* **прасігналізава́ць**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й (да 1 знач.). ‖ *наз.* **сігналіза́цыя**, -і, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **сігналізацы́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СІГНА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак.* (разм.). Тое, што і *сігналізаваць* (у 1 знач.). ‖ *зак.* **прасігна́ліць**, -лю, -ліш, -ліць.

**СІГНА́ЛЬНЫ** *гл.* сігнал.

**СІГНА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які падае сігналы (у 1 знач.).

**СІГНАТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ту́р, *ж.* (спец.). **1.** Частка рэцэпта з указаннем спосабу ўжывання лякарства, а таксама копія рэцэпта, якая прыкладаецца аптэкай да выдадзенага лякарства. **2.** *спец.* Лічба, якая абазначае парадкавы нумар друкаванага аркуша (друкуецца злева ўнізе на першай старонцы кожнага аркуша).‖ *памянш.* **сігнату́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* ‖ *прым.* **сігнату́рны**, -ая, -ае.

**СІГО́ВЫ** *гл.* сіг.

**СІДР**, -у, *м.* Слабае віно, якое атрымліваецца ў выніку браджэння яблычнага соку. ‖ *прым.* **сі́дравы**, -ая, -ае.

**СІЗІ́ФАЎ**. У выразе: **сізіфава праца** — бясконцая і марная праца (ад імя міфічнага цара Сізіфа, прыгаворанага за абразу багоў каціць на гару камень, які, дасягнуўшы вяршыні, скочваўся назад).

**СІ́ЛА**, -ы, *мн.* -ы, сіл, *ж.* **1.** Здольнасць жывых істот напружаннем мышц рабіць фізічныя рухі, дзеянні; фізічная энергія або маральная магчымасць чалавека, жывёліны актыўна дзейнічаць. *Мець немалую сілу. Страціць сілу. Набрацца сіл. Прымяніць сілу* (фізічнае ўздзеянне). **2.** *спец.* Велічыня, якая з'яўляецца мерай механічнага ўзаемадзеяння цел; энергія, якая ўздзейнічае на матэрыю, цела, а таксама ступень інтэнсіўнасці, напружанасці гэтай энергіі. *С. зямнога прыцяжэння. С. цяжару. С. электрычнага току.* **3.** звычайна *мн.* Матэрыяльная аснова як крыніца энергіі, дзейнасці. *Сілы прыроды.* **4.** *чаго.* Здольнасць праяўлення якой-н. дзейнасці, стану, якая адрозніваецца пэўнай ступенню напружанасці, накіраванасці. *С. характару. С. духу.* **5.** Улада, магутнасць, уплыў. *Магутная і непераможная с. барацьбітоў за мір.* **6.** Сутнасць, сэнс (разм.). *Уся с. ў тым, што чалавек гэты — майстар сваёй справы.* **7.** Значэнне, дзейнасць, правамоцтва. *Закон уступае ў сілу з 1 студзеня. С. закона.* **8.** *мн.* Грамадская група, наогул людзі, якія вызначаюцца якімі-н. характэрнымі прыкметамі або накіраванасцю ў сваёй дзейнасці. *Дэмакратычныя сілы міру. Лепшыя філарманічныя сілы. Творчыя сілы інтэлігенцыі.* **9.** *мн.* Тое, што і *войскі. Сухапутныя сілы. Узброеныя сілы краіны.* **10.** *Т мн.* **сіламі.** Пры дапамозе, з удзелам каго-н. *Сіламі аднавяскоўцаў адрамантавалі дарогу.* **11.** *каго-чаго.* Велізарная колькасць, мноства (разм.). *Гэты чалавек мае сілу дабра ўсякага.* ◊ **Ад сілы** (разм.) — самае большае. **З сілай** — з вялікім уздымам, пачуццём (гаварыць, спяваць і пад.). **З усёй сілы** або **на ўсю (поўную) сілу** або **з усіх сіл** — з найбольшым напружаннем; што ёсць моцы. **(Не) па сіле** *каму* або **(не) пад сілу** *каму* — пра адпаведнасць (неадпаведнасць) магчымасцей каго-н. рабіць што-н. **(Не) у сілах** — (не) магчы зрабіць што-н. **Нячыстая сіла** (разм.) — чорт, д'ябал. **Па меры сіл** — адпаведна з сіламі, з магчымасцямі. **У сіле** (разм.) — 1) у стане фізічнага і духоўнага росквіту; 2) у разгары, у росквіце. **Усімі сіламі** — прыкладваючы ўсё старанне, намаганні. **Цераз сілу** — звыш магчымасцей, жадання. ‖ *прым.* **сіла́вы**, -áя, -óе (да 1 і 2 знач.).

**СІЛАБІ́ЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). Пра вершаскладанне: заснаваны на захаванні пэўнай колькасці складоў у вершаваным радку незалежна ад націску у словах. *Сілабічная сістэма вершаскладання.*

**СІЛАГІ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лагічнае розумазаключэнне, у якім з двух дадзеных суджэнняў атрымліваецца трэцяе (вывад). ‖ *прым.* **сілагі́чны**, -ая, -ае.

**СІ́ЛАЙ**, *прысл.* Гвалтам, супраць волі. *С. браць.*

**СІЛАМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння велічыні механічнай сілы; дынамометр. ‖ *прым.* **сіламе́рны**, -ая, -ае.

**СІ́ЛАС**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у. Сакавіты корм для жывёлы з зялёных здробненых частак раслін, які атрымліваецца пры заквашванні. **2.** -а. Збудаванне ў выглядзе вежы або ямы для захавання такога корму. ‖ *прым.* **сіласны**, -ая, -ае.

**СІЛАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *зак.* і *незак., што.* Пературыць (ператвараць) у сілас. *С. кукурузу.* ‖ *зак.* таксама **засіласава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны. ‖ *наз.* **сіласава́нне**, -я, *н.*

**СІЛА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Чалавек вялікай фізічнай сілы. ‖ *ж.* **сіла́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**СІЛІКА́Т**, -у, *М* -ка́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Назва мінералаў, у склад якіх уваходзіць крэменязём, а таксама вырабаў з такіх мінералаў. ‖ *прым.* **сіліка́тны**, -ая, -ае. *С. клей. Сілікатная цэгла.*

**СІ́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *незак.* Намагацца, старацца зрабіць што-н. *Колькі ні сілься, а адной не ўправіцца з гаспадаркай. Дзіця сілілася ўстаць.*

**СІЛКАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Прызначаны для сілкавання, які забяспечвае чым-н. неабходным для нармальнага дзеяння, функцыянавання. *Сілкавальная помпа для паравога катла. Сілкавальныя батарэйкі.*

**СІЛКАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* сілкаваць. **2.** Тое, што забяспечвае нармальнае дзеянне, функцыянаванне чаго-н. (спец.). *С. для радыёпрыёмніка.*

**СІЛКАВА́ЦЦА**, -ку́юся, -ку́ешся, -ку́ецца; -ку́йся; *незак.* **1.** Есці. *З дарогі селі хлопцы с.* **2.** Атрымліваць адкуль-н. што-н. неабходнае для нармальнага дзеяння, функцыянавання (спец.). *Радыёпрыёмнік сілкуецца ад батарэек.* ‖ *наз.* **сілкава́нне**, -я, *н.*

**СІЛКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *незак.* **1.** *каго.* Падмацоўваць ежай, карміць. *С. клёцкамі.* **2.** *што.* Забяспечваць чым-н. неабходным для нармальнага дзеяння, функцыянавання (спец.). *С. акумулятар.* ‖ *наз.* **сілкава́нне**, -я, *н.*

**СІЛКО́М**, *прысл.* (разм.). Сілай: супраць волі. *С. прывесці ў школу.*

**СІЛО́**, -а́, *мн.* сі́лы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) сілы́, сі́лаў, *н.* **1.** Прыстасаванне ў выглядзе петляў для лоўлі птушак і дробных жывёлін. **2.** *перан.* Пастка. *Ставіць с. на каго-н.* ‖ *прым.* **сіло́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СІЛУЭ́Т**, -а, *М* -э́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Аднаколернае плоскаснае адлюстраванне прадмета на фоне іншага колеру. *Намаляваць сілуэты сялян.* **2.** Абрысы чаго-н., што віднеецца ўдалечыні, у тумане, у цемры і пад. *Здалёку віднеліся сілуэты варожых танкаў.* **3.** Знешні контур якога-н. збудавання, прадмета і інш. *Модны с. адзення.* ‖ *прым.* **сілуэ́тны**, -ая, -ае.

**СІМБІЁЗ**, -у, *м.* (спец.). Форма сумеснага жыцця арганізмаў розных відаў, якая прыносіць ім узаемную карысць. *С. грыба і водарасці.* ‖ *прым.* **сімбіяты́чны**, -ая, -ае.

**СІ́МВАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тое, што служыць умоўным знакам якога-н. паняцця, з'явы, ідэі; мастацкі вобраз, які перадае якую-н. думку, перажыванне. *Жалейка — с. беларускай паэзіі. Голуб — с. міру.* **2.** Прынятае ў навуцы ўмоўнае абазначэнне якой-н. адзінкі, велічыні. *Сімвалы хімічных элементаў.* ○ **Сімвал веры** — кароткі выклад асноўных догматаў хрысціянскай рэлігіі. ‖ *прым.* **сімвалі́чны**, -ая, -ае *і* **сі́мвальны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.). *Сімвалічнае адлюстраванне. Сімвальная інфармацыя.*

**СІМВАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). З'явіцца (з'яўляцца) сімвалам (у 1 знач.) чаго-н. *Хор у спектаклі сімвалізуе адзінства народа.* ‖ *наз.* **сімваліза́цыя**, -і, *ж.*

**СІМВАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Кірунак у літаратуры і мастацтве канца 19 — пачатку 20 ст., які адлюстроўваў рэчаіснасць як ідэальную сутнасць свету ва ўмоўных і абстрактных формах. ‖ *прым.* **сімвалі́чны**, -ая, -ае.

**СІМВАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік сімвалізму. ‖ *ж.* **сімвалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **сімвалі́сцкі**, -ая, -ае.

**СІМВАЛІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сімвал, сімволіка. **2.** Які мае скрыты сэнс, які наводзіць на асацыяцыі (у 2 знач.). *Лёс героя с. С. сэнс назвы рамана.* **3.** Пра пла́ты, сумы: мізэрна малы. *Аплата за паслугі — чыста сімвалічная. С. ўзнос.* ‖ *наз.* **сімвалі́чнасць**, -і, *ж.*

**СІМВО́ЛІКА**, -і, *ДМ* -ліцы, *ж.* **1.** Сімвалічнае значэнне, што прыпісваецца чаму-н.; выражэнне ідэй, паняццяў або пачуццяў пры дапамозе ўмоўных знакаў (сімвалаў). *С. лічбаў. С. колераў.* **2.** *зб.* Сукупнасць якіх-н. сімвалаў. *Народная с.* ‖ *прым.* **сімвалі́чны**, -ая, -ае.

**СІМЕТРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які валодае сіметрыяй. *Сіметрычнае збудаванне.* ‖ *наз.* **сіметры́чнасць**, -і, *ж.*

**СІМЕ́ТРЫЯ**, -і, *ж.* Суразмернае, прапарцыянальнае размяшчэнне частак чаго-н. у адносінах да цэнтра, сярэдзіны; аднолькавасць у размяшчэнні частак чаго-н. па супрацьлеглых баках ад пункта, прамой або плоскасці. *Вытрымаць сіметрыю.*

**СІМПАТЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; *незак., каму-чаму.* Адчуваць сімпатыю, добра адносіцца да каго-, чаго-н. *С. выкладчыку.*

**СІМПАТЫ́ЧНЫ**[1], -ая, -ае. Які выклікае сімпатыю, прывабны, мілы, прыемны. *Сімпатычныя суседзі. Гэты чалавек мне с. С. гальштук.* ‖ *наз.* **сімпаты́чнасць**, -і, *ж.*

**СІМПАТЫ́ЧНЫ**[2], -ая, -ае (спец.). **1.** Які мае адносіны да аддзела вегетатыўнай нервовай сістэмы. *С. нерв.* **2.** Які ўзнікае на іншых, блізкіх або сіметрычна размешчаных участках. *Сімпатычныя болі ў зубах.* **3.** Які аслабляе боль у хворага (пра нейтральныя лекавыя сродкі). *Сімпатычныя прэпараты.* ○ **Сімпатычнае чарніла** — бясколерная або слаба афарбаваная вадкасць, якая выкарыстоўваецца ў тайнай перапісцы. **Сімпатычная нервовая сістэма** (спец.) — аддзел нервовай сістэмы, які ўдзельнічае ў рэгуляванні кровазвароту, абмену рэчываў і іншых функцыях арганізма.

**СІМПА́ТЫЯ**, -і, *мн.* -і, -тый, *ж.* **1.** Прыхільнасць, ласкавыя, цёплыя адносіны да каго-, чаго-н. *Адносіцца да каго-н. з вялікай сімпатыяй.* **2.** Любімы чалавек (разм.). *Сёння сустрэў сваю сімпатыю.*

**СІМПО́ЗІУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Нарада, канферэнцыя па якім-н. навуковым пытанні. *Міжнародны с. фізіёлагаў.*

**СІМПТАМАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца сімптомам чаго-н. (кніжн.). *Сімптаматычная з'ява.* **2.** Які накіраваны на ліквідацыю асобных сімптомаў хваробы, а не на асноўную прычыну яе (спец.). *Сімптаматычнае дзеянне лякарства.* ‖ *наз.* **сімптаматы́чнасць**, -і, *ж.*

**СІМПТО́М**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Характэрнае праяўленне якой-н. хваробы. *Сімптомы грыпу.* **2.** Знешняя прыкмета, знешняе праяўленне чаго-н. *Сімптомы крызісу.* ‖ *прым.* **сімптаматы́чны**, -ая, -ае.

**СІМУЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны; *зак.* і *незак., што.* Прытвараючыся, стварыць (ствараць) ілжывае ўяўленне пра наяўнасць чаго-н. *С. хваробу.* ‖ *наз.* **сімулява́нне**, -я, *н. і* **сімуля́цыя**, -і, *ж.*

**СІМУЛЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які сімулюе што-н. (часцей хваробу). ‖ *ж.* **сімуля́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **сімуля́нцкі**, -ая, -ае.

**СІМУЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Прытворства, стварэнне ілжывага ўяўлення аб чым-н. *С. хваробы. С. абрабавання.*

**СІМФО́НІЯ**, -і, *мн.* -і, -ній, *ж.* **1.** Вялікі (звычайна з чатырох частак, якія адрозніваюцца адна ад другой характарам музыкі і тэмпам) музычны твор для аркестра. *Трэцяя с. Бетховена.* **2.** *перан.* Гарманічнае спалучэнне, злучэнне чаго-н. *С. колераў.* ‖ *прым.* **сімфані́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *С. аркестр* (са струннымі, духавымі і ўдарнымі інструментамі).

**СІНАГО́ГА**, -і, *ДМ* -го́зе, *мн.* -і, -го́г, *ж.* Іудаісцкі храм. ‖ *прым.* **сінагага́льны**, -ая, -ае.

**СІНАНІ́МІКА**, -і, *ДМ* -міцы, *ж.* (спец.). **1.** Раздзел лексікалогіі, які вывучае сінонімы. **2.** Сукупнасць сінонімаў якой-н. мовы. *Беларуская с.*

**СІНАНІМІ́ЧНЫ** *гл.* сінонім.

**СІНАНІМІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Адносіны, якія існуюць паміж сінонімамі; падабенства слоў па знач. пры розным іх гучанні. *Лексічная с. Сінтаксічная с.* ‖ *прым.* **сінані́мічны**, -ая, -ае.

**СІНАПТЫ́ЧНЫ** *гл.* сіноптыка.

**СІНДРО́М**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Комплекс сімптомаў, характэрных для

якога-н. захворвання. *Астматычны с. Болевы с.*

**СІНДЫКА́Т**, -а, *М* -ка́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Буйное манапалістычнае аб'яднанне прадпрыемцаў, у якім удзельнікі, захоўваючы вытворчую самастойнасць, ажыццяўляюць сумесную камерцыйную дзейнасць (вызначэнне цэн, закупку сыравіны, збыт тавараў) з мэтай абмежавання канкурэнцыі і забеспячэння панавання на рынках. **2.** У некаторых краінах: назва прафесійных саюзаў. ‖ *прым.* **сіндыка́тны**, -ая, -ае.

**СІНЕ-...** (а таксама **сіня-...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) сіні (у 1 знач.), з сінім адценнем, напр.: *сіне-блакітны, сіне-зялёны, сіне-фіялетавы;* 2) сіні (у 1 знач.), у спалучэнні з іншым асобным колерам, напр.: *сіне-бела-чырвоны, сіне-чырвоны.*

**СІНЕ́КДАХА**, -і, *ДМ* -дасе, *ж.* (спец.). Стылістычны прыём, калі назва часткі выкарыстоўваецца замест назвы цэлага, агульнага і наадварот (напр., «галава» замест «чалавек»), а таксама слова і зварот, ужытыя такім чынам.

**СІНЕКУ́РА**, -ы, *ж.* (кніжн.). Пасада, якая добра аплачваецца і не патрабуе асаблівых турбот і намаганняў.

**СІНЕ́ЛЬ**, -і, *ж.* Аксаміцісты шнурок для вышывання, упрыгожання жаночага адзення, капелюшоў. ‖ *прым.* **сіне́льны**, -ая, -ае. *Сінельныя махры.*

**СІНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Рабіцца сінім. *С. на холадзе.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Віднецца (пра што-н. сіняе). *У жыце сінеюць васількі.* ‖ *зак.* **пасіне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 1 знач.); *наз.* **пасіне́нне**, -я, *н. Купацца да пасінення* (пакуль не змерзнеш; разм.) *і* **ссіне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 1 знач.).

**СІНЕ́ЧА**, -ы, *ж.* (разм.). Сіні колер чаго-н., сіняя прастора. *Над галавой с. неба.*

**СІ́НІ**, -яя, -яе. **1.** Які мае афарбоўку аднаго з асноўных колераў спектра — сярэдняга паміж блакітным і фіялетавым. *Сіняе неба. Сінія вочы.* **2.** Пра скуру: які мае адценне гэтага колеру. *Сінія губы.* ◊ **Сіняя панчоха** (пагард.) — пра жанчыну, пазбаўленую жаноцкасці: сухую педантку, якую больш за ўсё цікавяць дзелавыя, навуковыя заняткі. ‖ *памянш.* **сіненькі**, -ая, -ае.

**СІНІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **сінільная кіслата** — ядавітая бясколерная вадкасць з пахам горкага міндалю; цыяністы вадарод.

**СІНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* Невялікая стракатая птушка атрада вераб'інападобных. ‖ *памянш.* **сіні́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **сіні́чы**, -ая, -ае *і* **сіні́чын**, -а. *Сінічы свіст. Сінічына гняздо.*

**СІНІ́ЦЬ**, сіню́, сі́ніш, сі́ніць; сі́нены; *незак., што.* **1.** Фарбаваць у сіні колер. *С. ніткі.* **2.** Паласкаць у вадзе з разбаўленай у ёй сінькай; падсіньваць. *С. фіранкі.* ‖ *зак.* **падсіні́ць**, -сіню́, -сі́ніш, -сі́ніць; -сі́нены (да 2 знач.). ‖ *наз.* **сі́нька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж. і* **падсі́ньванне**, -я, *н.*

**СІНКЛІ́Т**, -а, *М* -лі́це, *м.* **1.** Сход вышэйшых саноўнікаў у Старажытнай Грэцыі (гіст.). **2.** Сход духоўных асоб, духавенства. *Сабраўся ўвесь духоўны с. з кансісторскімі чыноўнікамі.*

**СІНКРЭТЫ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Злітнасць, нерасчлянёнасць, якія характэрны для першапачатковага стану ў развіцці чаго-н. *С. першабытнага мастацтва.* ‖ *прым.* **сінкрэты́чны**, -ая, -ае.

**СІНКРЭТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** *гл.* сінкрэтызм. **2.** Злітны, нерасчлянёны ў сваім зыходным, першапачатковым стане. *Сінкрэтычная рэлігія. Сінкрэтычнае цэлае.* **3.** Які вызначаецца эклектызмам, знешняй злучанасцю таго, што ўнутрана не злучана. *Сінкрэтычныя тэорыі.*

**СІНО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вышэйшы калегіяльны орган кіравання Рускай праваслаўнай царквы ў перыяд паміж Архірэйскімі саборамі, а таксама дарадчы орган пры патрыярху. ‖ *прым.* **сіно́дскі**, -ая, -ае.

**СІНО́ДЗІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У праваслаўнай царкве: кніга запісу імён памерлых для памінання іх у час набажэнства.

**СІНО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне сіналогіі (кітаязнаўства); кітаіст.

**СІНО́НІМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Слова (або выраз), якое гучаннем і напісаннем адрозніваюцца ад іншага, але супадае або блізкае па знач. з іншым словам (выразам), напр., «смелы» і «адважны»; «апусціць галаву» і «панурыць галаву». ‖ *прым.* **сінані́мічны**, -ая, -ае. *С. рад назоўнікаў.*

**СІНО́ПТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па сіноптыцы.

**СІНО́ПТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Раздзел метэаралогіі, які займаецца вывучэннем фізічных працэсаў у атмасферы і вызначае стан надвор'я на бліжэйшы час. ‖ *прым.* **сінапты́чны**, -ая, -ае.

**СІ́НТАКСІС**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у. Уласцівыя пэўнай мове спосабы спалучэння слоў у словазлучэнні і сказы, а таксама раздзел граматыкі, які вывучае сістэму моўных катэгорый, звязаных са спалучэннем слоў і будовай сказаў. *С. беларускага простага сказа.* **2.** -а. Падручнік, кніга, прысвечаныя вывучэнню такога раздзела граматыкі (разм.). *Купіць «Сінтаксіс беларускай мовы».* ‖ *прым.* **сінтаксі́чны**, -ая, -ае.

**СІ́НТЭЗ**, -у, *м.* **1.** Абагульненне звестак у адзінае цэлае, здабытых у працэсе аналізу даследаваных з'яў. **2.** Атрыманне складаных хімічных злучэнняў з больш простых (спец.). *С. бялкоў.* ‖ *прым.* **сінтэты́чны**, -ая, -ае.

**СІНТЭЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Зрабіць (рабіць) сінтэз (у 1 знач.); абагульніць (абагульняць), злучыць (злучаць). **2.** Атрымаць (атрымліваць) шляхам сінтэзу (у 2 знач.). *С. вадкае паліва.*

**СІНТЭ́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж., зб.* Сінтэтычныя матэрыялы, а таксама вырабы з іх.

**СІНТЭТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сінтэз. **2.** Штучны, выраблены з сінтэтыкі. *Сінтэтычнае валакно. Сінтэтычная тканіна.* **3.** У мовазнаўстве: такі, пры якім граматычныя адносіны ў сказе выражаюцца формамі слоў. *Сінтэтычныя мовы.*

**СІ́НУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Трыганаметрычная функцыя вугла, у прамавугольным трохвугольніку роўная адносінам катэта, што ляжыць супраць дадзенага вострага вугла, да гіпатэнузы.

**СІНХРАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). Прывесці (прыводзіць) да сінхранізму. *С. работу механізмаў.* ‖ *наз.* **сінхраніза́цыя**, -і, *ж.; прым.* **сінхранізацы́йны**, -ая, -ае.

**СІНХРАНІЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Механізм, які забяспечвае сінхроннае дзеянне чаго-н. *С. гуку і відарыса* (у кіно, тэлебачанні).

**СІНХРАНІ́ЗМ**, -у, *м.* (спец.). Дакладнае супадзенне і сувязь у часе дзвюх або некалькіх з'яў або працэсаў; адначасовасць.

**СІНХРАНІ́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Спартсменка, якая займаецца сінхронным плаваннем.

**СІНХРАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які вызначаецца сінхранізмам, паказвае на адначасовасць чаго-н. *Сінхранічная табліцы.*

**СІНХРАТРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Адзін з відаў установак для паскарэння руху электронаў. ‖ *прым.* **сінхратро́нны**, -ая, -ае.

**СІНХРАФАЗАТРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Адзін з відаў установак для паскарэння руху пратонаў. ‖ *прым.* **сінхрафазатро́нны**, -ая, -ае.

**СІНХРО́ННЫ**, -ая, -ае (спец.). Які ажыццяўляецца адначасова, супадае ў часе. *Сінхронная хуткасць. С. пераклад* (які адбываецца адначасова з маўленнем на замежнай мове). ‖ *наз.* **сінхро́ннасць**, -і, *ж.*

**СІНЬ**, -і, *ж.* **1.** Сіні колер; сіняя прастора, сіняя паверхня (пра мора, неба, паветра). *Марская с. Не змераць вокам шыр палёў і неба с.* **2.** У горнай справе — назва некаторых руд, якія маюць сіні колер. *Медная с. Жалезная с.*

**СІНЬЁ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У Італіі: пан, а таксама форма ветлівага звароту да мужчын, якая звычайна ўжыв. перад імем або прозвішчам. ‖ *ж.* **сіньёра**, -ы, *мн.* -ы, сіньёр.

**СІ́НЬКА**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* **1.** *гл.* сініць. **2.** Сіняя фарба для падсіньвання бялізны, паперы. *С. для бялізны.* **3.** Сіняга колеру капіравальная папера для размнажэння чарцяжоў, а таксама чарцёж, адбіты з калькі на такой паперы (спец.).

**СІНЬЯРЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -рын, *ж.* У Італіі — форма ветлівага звароту да дзяўчыны; паненка.

**СІНЮ́ХА**, -і, *ДМ* -нюсе, *ж.* Тое, што і *сінюшнасць.*

**СІНЮ́ШНАСЦЬ**, -і, *ж.* Сіняватая афарбоўка скуры пры некаторых захворваннях. || *прым.* **сіню́шны**, -ая, -ае.

**СІНЯВА́**, -ы́, *ж.* Сіні колер, сіняя прастора. *С. возера. Тканіна з сінявой. С. неба.*

**СІНЯ́К**, -á, *мн.* -і́, -óў, *м.* Пасінелы крывападцёк на целе як след ад удару і пад. *С. на назе.*

**СІП**[1], -у, *м.* Тое, што і *сіпата. Прастудны с.*

**СІП**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйная драпежная птушка атрада сокалападобных з бурым апярэннем і белым пухам на галаве і шыі.

**СІПАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Крыху сіпаты. *С. голас.* || *наз.* **сіпава́тасць**, -і, *ж.*

**СІПАТА́**, -ы́, *ДМ* -паце́, *ж.* **1.** *гл.* сіпаты. **2.** Адчуванне сухасці ў горле, што перашкаджае яснасці, выразнасці маўлення. *Пець да сіпаты.*

**СІПА́ТЫ**, -ая, -ае. Які страціў чысціню і гучнасць (пра голас, гукі і пад.). *С. голас. С. чалавек* (з прыглушаным хрыплым голасам). || *наз.* **сіпа́тасць**, -і, *ж.*

**СІПА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* Гаварыць сіпатым голасам.

**СІПЕ́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́; *незак.* Утвараць сіплыя гукі. *С. ад прастуды.* || *наз.* **сіпе́нне**, -я, *н.*

**СІ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* Тое, што і *сіпата. С. ў голасе.*

**СІ́ПЛЫ**, -ая, -ае. Прыглушана-хрыплы, з прысвістваннем і лёгкім сіпеннем. *С. голас. Сіпла* (прысл.) *пець.* || *наз.* **сі́пласць**, -і, *ж.*

**СІ́ПНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; сіп, -пла; -ні; *незак.* Рабіцца сіплым, пачынаць сіпець. *Голас сіпне.* || *зак.* **асі́пнуць**, -ну, -неш, -не; асі́п, -пла; -ні.

**СІРАТА́**, -ы́, *ДМ* -раце́, *Т* -óй (-óю), *мн.* сірóты *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) сіраты́, -рóт, *м. і ж.* Дзіця або падлетак, які застаўся без аднаго або абодвух бацькоў. *Дзе ж сіраце бацьку ўзяць? Круглая с.* (без маці і бацькі). ◊ **Казанская сірата** — пра таго, хто прыкідваецца няшчасным, каб разжаліць каго-н. || *памянш.-ласк.* **сірóтка**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -тцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -так *і* **сірацí́нка**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.*; *ДМ* -нцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -нак. || *прым.* **сірóчы**, -ая, -ае *і* **сірóцкі**, -ая, -ае. *Сірочую галоўку дожджык мые. Зіма сёлета сіроцкая — без моцных маразоў.*

**СІРАТЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Тужліва-адзінокі, сумны, маркотны. *С. выгляд. Сіратлівая старасць.* || *наз.* **сіратлі́васць**, -і, *ж.*

**СІРАЦЕ́ЦЬ**, -éю, -éеш, -éе; *незак.* Станавіцца сіратой. || *зак.* **асіраце́ць**, -éю, -éеш, -éе.

**СІРÓКА**, *нескл., м.* Сухі і гарачы паўднёвы або паўднёва-ўсходні вецер у Міжземнамор'і.

**СІРÓП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Канцэнтраваны раствор цукру ў вадзе або натуральным фруктовым ці ягадным соку. *Малінавы с. Лекавы с.* (змяшчае лекавыя рэчывы і з'яўляецца лекавым прэпаратам). || *прым.* **сірóпны**, -ая, -ае.

**СІРÓЦТВА**, -а, *н.* Стан сіраты; адзіноцтва. *Вырасці ў сіроцтве.*

**СІРЫ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* -ры́ец, -ры́йца, *м.* Насельніцтва Сірыі. || *ж.* **сіры́йка**, -і, *ДМ* -ры́йцы, *мн.* -і, -ры́ек. || *прым.* **сіры́йскі**, -ая, -ае.

**СІ́РЫН *і* СІРЫ́Н**, -а, *м.* У старажытнай усходнеславянскай літаратуры: фантастычная птушка з тварам і грудзьмі жанчыны.

**СІРЭ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -рэ́н, *ж.* **1.** У грэчаскай міфалогіі: марская істота ў выглядзе жанчыны з хвастом рыбы, якая сваім мілагучным спевам заваблівала маракоў у гібельныя месцы. **2.** *мн.* Атрад водных млекакормячых, якія жывуць у цёплых морах і рэках. **3.** Прыбор для атрымання гукаў рознай вышыні (спец.). **4.** Прыстасаванне для падачы рэзкіх, моцных гукавых сігналаў, а таксама гукі, якія падаюцца такім прыстасаваннем. *Раптам завыла с. аўтамашыны.*

**СІСТЭ́МА**, -ы, *мн.* -ы, -тэ́м, *ж.* **1.** Пэўны парадак у правільным размяшчэнні і сувязі частак чаго-н., у дзеяннях. *Прывесці ў сістэму выпісаныя прыклады. Працаваць па правільнай сістэме. С. выхавання падрастаючага пакалення.* **2.** Форма арганізацыі чаго-н. *Дзяржаўная с. Выбарчая с.* **3.** Спалучэнне заканамерна звязаных паміж сабой элементаў (прадметаў, з'яў, ведаў і пад.), якія складаюць нешта цэласнае, адзінае. *С. поглядаў вучоных 19 ст. Нервовая с. Гукавая с. беларускай мовы. Педагагічная с. Філасофская с.* (вучэнне). *С. аўтамабільных дарог. Меліярацыйная с.* **4.** Грамадскі лад, фармацыя. *Сацыялістычная с. Капіталістычная с.* **5.** Сукупнасць арганізацый, блізкіх па сваіх задачах, або ўстаноў, аб'яднаных у адзінае цэлае. *С. органаў народнай асветы.* **6.** Прылада, канструкцыя. *Машына новай сістэмы.* **7.** Тое, што стала звычайным, рэгулярным заняткам (разм.). *Стала сістэмай для вучняў пачынаць рабочы дзень з фізічных практыкаванняў.* || *прым.* **сістэ́мны**, -ая, -ае.

**СІСТЭМАТЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -заваны; *зак. і незак., што.* Прывесці (прыводзіць) у сістэму (у 1 знач.). *С. матэрыялы.* || *наз.* **сістэматызава́нне**, -я, *н. і* **сістэматыза́цыя**, -і, *ж.*

**СІСТЭМА́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Прывядзенне ў сістэму (у 1 знач.) чаго-н., а таксама сістэма, класіфікацыя чаго-н. *С. раслін. С. жывёл.*

**СІСТЭМАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які трымаецца пэўнай сістэмы (у 1 знач.). *С. каталог навуковай літаратуры.* **2.** Рэгулярны, які пастаянна паўтараецца, не перапыняецца. *Сістэматычныя ўрокі па музыцы. Сістэматычна* (прысл.) *наведваць заняткі.* || *наз.* **сістэматы́чнасць**, -і, *ж.*

**СІСТЭМАТЭ́ХНІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* (спец.). Навукова-тэхнічная дысцыпліна, што займаецца стварэннем і эксплуатацыяй складаных сістэм (у 3 знач.). || *прым.* **сістэматэхні́чны**, -ая, -ае.

**СІ́ТА**, -а, *М* сіце, *мн.* -ы, -аў, *н.* Род рэшата (у 1 знач.) з густой сеткай для прасейвання або працэджвання чаго-н. *Прасеяць муку на с. Працадзіць варыва на с.* || *памянш.* **сі́тца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* || *прым.* **сі́тавы**, -ая, -ае.

**СІ́ТАЎКА**, -і, *ДМ* -таўцы, *мн.* -і, -тавак, *ж.* Невялікая пералётная птушка атрада вераб'інападобных. *Скачуць як на пружынках вёрткія сітаўкі.* || *прым.* **сі́таўкавы**, -ая, -ае.

**СІ́ТНІЦА**, -ы, *ж.* (разм.). Хлеб, спечаны з сітнай мукі.

**СІ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прасеяны праз сіта. *Сітная мука.* **2.** Спечаны з такой мукі. *С. хлеб. Купіць паўбулкі сітнага* (наз.).

**СІТРÓ**, *нескл., н.* Газіраваны фруктовы безалкагольны напітак.

**СІТУАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які мае адносіны да асобнай сітуацыі, абмежаваны пэўнымі ўмовамі. || *наз.* **сітуаты́ўнасць**, -і, *ж.*

**СІТУА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Сукупнасць абставін, становішча. *Рэвалюцыйная с. Ваенная с. Вось дык с.!* (пра заблытанае становішча). || *прым.* **сітуацы́йны**, -ая, -ае.

**СІ́ТЦА** *гл.* сіта.

**СІ́ЎКА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.*; *ДМ* сі́ўцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, сі́вак (разм.). Конь сівой масці. *Ну, варушыся, с.*

**СІ́ЎКА-ВАРÓНКА**, сі́ўкі-варóнкі, *ДМ* сі́ўцы-варóнцы, *мн.* сі́ўкі-варóнкі, сівак-варóнак, *ж.* Тое, што і *сіваваронка.*

**СІ́ФІЛІС**, -у, *м.* Заразная венерычная хвароба. || *прым.* **сіфілі́тычны**, -ая, -ае.

**СІФІЛІ́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, хворы на сіфіліс. || *ж.* **сіфілі́тычка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**СІФÓН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Выгнутая трубка для пералівання з адной пасудзіны ў другую вадкасцей з рознымі ўзроўнямі (спец.). **2.** Пасудзіна для газіравання пітной вады. || *прым.* **сіфóнны**, -ая, -ае.

**СІЯ́МЦЫ**, -аў, *адз.* -я́мец, -мца, *н.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Тайланда. || *ж.* **сія́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак. || *прым.* **сія́мскі**, -ая, -ае. *Сіямская мова.*

**СІЯНІ́ЗМ**, -у, *м.* Яўрэйскі нацыяналістычны рух, які ўзнік у канцы 19 ст. і ставіць сваёй мэтай аб'яднанне яўрэяў розных краін. || *прым.* **сіяні́сцкі**, -ая, -ае.

**СІЯНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік сіянізму. || *ж.* **сіяні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **сіяні́сцкі**, -ая, -ае.

**СІЯ́ЦЕЛЬСТВА**, -а, *н.* Тытулаванне князёў, графаў у царскай Расіі (ужыв. з займеннікам «ваша», «яго», «іх»), а таксама іх жонак. *Іх с.*

**СКААПЕРАВА́ЦЦА** *гл.* кааперавацца.

**СКААПЕРАВА́ЦЬ** *гл.* кааперáваць.

**СКААРДЫНАВА́ЦЬ** *гл.* каардынаваць.

**СКАБА́**, -ы́, *мн.* ско́бы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) скабы́, скоб, *ж.* **1.** Выгнутая паўкругам металічная паласа, якая служыць ручкай у дзвярах, сундуках і пад. **2.** Сагнутая пад вуглом жалезная паласа ці дрот для сашчаплення якіх-н. частак. *Змацаваць вуглы скобамі.* ‖ *памянш.* **ско́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* ‖ *прым.* **ско́бачны**, -ая, -ае.

**СКАБЯНЫ́**, -а́я, -о́е. Які мае адносіны да вырабаў з жалеза; звязаны з вытворчасцю і гандлем лёгкімі жалезнымі вырабамі (скобы, крукі, засоўкі і пад.). *Скабяныя тавары.*

**СКАВА́НЫ**, -ая, -ае; *перан., у знач. прым.* Пазбаўлены лёгкасці, свабоды, натуральнасці, з затрымкай у дзеяннях, у праяўленні чаго-н. *Скаваныя рухі.* ‖ *наз.* **скава́насць**, -і, *ж.*

**СКАВАРАДА́**, -ы́, *ДМ* -радзе́, *мн.* скавaро́ды *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) скаварады́, -ро́д, *ж. і* (разм.) **СКАВАРО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* Тое, што і *патэльня.* ‖ *прым.* **скаваро́дны**, -ая, -ае.

**СКАВА́ЦЬ**, скую́, скуе́ш, скуе́; скуём, скуяце́, скую́ць; скуй; скава́ны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць каваннем. *С. сякеру.* **2.** *што.* Злучыць пры дапамозе кавання. *С. звёны ланцуга.* **3.** *каго-што.* Надзець кайданы, аковы або злучыць кайданамі з кім-н. *С. злачынцаў.* **4.** *перан., каго-што.* Пазбавіць свабоды, лёгкасці ў рухах, дзеяннях. *Трывога скавала мае думкі. С. сілы ворага.* **5.** *перан., што.* Зрабіць цвёрдым, нерухомым, замарозіўшы. *Мароз скаваў возера. Зямлю скавала* (безас.) *ранавата.* ‖ *незак.* **ско́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ско́ўванне**, -я, *н. і* **ско́ўка**, -і, *ДМ* -ко́ўцы, *мн.* -і, -ко́вак, *ж.* (да 2 знач.).

**СКАВЫТА́ЦЬ**, -вычу́, -вы́чаш, -вы́ча; -вычы́; *незак.* **1.** Пра сабаку: жаласна павіскваць, ціха ныць. **2.** *перан.* Крыўдзіцца, скардзіцца, плакаць (разм., зневаж.). ‖ *наз.* **скавыта́нне**, -я, *н.*

**СКАВЫ́Ш**, -у́, *м.* (разм.). Моцны пранізлівы вецер з завываннем. *С. завываў у коміне.*

**СКАЖА́ЦЦА** *гл.* сказіцца.

**СКАЖА́ЦЬ** *гл.* сказіць.

**СКАЖО́НЫ**, -ая, -ае. Няправільны, перайначаны. *С. тэкст артыкула.* ‖ *наз.* **скажо́насць**, -і, *ж.*

**СКАЖЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* сказіцца, сказіць. **2.** Змяненне, якое скажае што-н.; памылка, няправільнасць. *Недапушчальныя скажэнні ў газеце.*

**СКАЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У граматыцы: сінтаксічна і інтанацыйна афармленая канструкцыя, якая выражае закончаную думку. *Безасабовы с. Складаны с.* **2.** Народнае эпічнае апавяданне аб падзеях мінулага або сучаснасці. *С. пра герояў Вялікай Айчыннай вайны.* **3.** У літаратуразнаўстве: форма апавядання ў творы, што вядзецца ад імя літаратурнага героя. *«С. пра Лысую гару».* ‖ *прым.* **ска́завы**, -ая, -ае.

**СКАЗА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Паданне (пераважна народнае) гістарычнага або легендарнага зместу. *С. пра беларускіх волатаў.*

**СКАЗАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., што і без дап.* (разм.). Сказаць што-н. нечаканае (часам грубае і недарэчнае). *Трэба ж такое с.!*

**СКАЗА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., ска́жацца; *зак.* (разм.). Быць сказаным. *На сходзе многае сказалася.*

**СКАЗА́ЦЬ**, скажу́, ска́жаш, ска́жа; скажы́; ска́заны; *зак.* **1.** *гл.* гаварыць. **2.** *з інф.* Распарадзіцца, загадаць. *Мне сказалі падрыхтаваць ілюстрацыйны матэрыял да тэмы. Мама сказала сыну хутчэй бегчы дадому.* **3.** (звычайна з адмоўем). Зрабіць вывад, падумаць. *Па тваім адзенні не скажаш, што бедна жывеш.* **4.** *у форме 1 ас. мн. буд.* **ска́жам** *ужыв. таксама як пабочн. сл.* Напрыклад (разм.). *Скажам, заўтра я не змагу пайсці ў бібліятэку.* **5.** *заг.* **скажы́(це).** Вокліч, які служыць для выражэння здзіўлення, абурэння і пад. з прычыны чаго-н. *Скажыце, які ты спрытны!* **6.** *у форме 2 і 3 ас. буд.* **ска́жаш (ска́жаце), ска́жа (ска́жуць).** Вокліч з асобай інтанацыяй, ужыв. для выражэння нязгоды, недавер'я. *Хадзі ў лес па ягады! — Скажаш жа! — Куды ёй у лес!* ◊ **Скажы(це), калі ласка** — ветлівы зварот пры запытанні аб чым-н. *Скажыце, калі ласка, куды вядзе гэта дарога?*

**СКАЗІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -зі́цца; *зак.* **1.** Змяніцца, перайначыцца. *Інфармацыя пры перадачы па тэлебачанні сказілася.* **2.** Моцна змяніцца (пра твар, знешні выгляд). *Твар сказіўся ад болю.* ‖ *незак.* **скажа́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **скажэ́нне**, -я, *н.*

**СКАЗІ́ЦЬ**, скажу́, сказі́ш, сказі́ць; сказі́м, сказіце́, сказя́ць; скажо́ны; *зак., што.* **1.** Перайначыць, падаць у няправільным, памылковым выглядзе. *С. думку.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Моцна змяніць (твар, знешні выгляд — ад болю, гора і пад.). *Боль сказіў твар.* ‖ *незак.* **скажа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **скажэ́нне**, -я, *н.*

**СКАКАВЫ́** *гл.* скачкі.

**СКАКА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Спартыўны інвентар у выглядзе шнура, цераз які скачуць, круцячы і перакідваючы яго цераз галаву.

**СКАКА́ЦЬ**, скачу́, ска́чаш, ска́ча; скачы́; *незак.* **1.** Рабіць скачкі, хутка рухацца, падскокваючы. *Дзеці скачуць на лузе. Заяц скача па канюшыне. С. на адной назе.* **2.** Адскокваць убок або ўверх, стукаючы аб што-н. цвёрдае. *Мячык скача на тратуары.* **3.** Міжвольна дрыжаць, трэсціся (пра часткі цела, твару; разм.). *Калені скакалі ад страху. На шыі скача жылка.* **4.** Ехаць наўскач. *С. на кані праз выган.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Рэзка змяняцца (разм.). *Гутарка скакала з адной тэмы на другую. Тэмпература ў дзіцяці скача. Цэны скачуць.* **6.** Танцаваць (разм.). *С. польку.* **7.** Часта мяняць месца работы, вучобы (разм.). *С. з аднаго завода на другі.* ◊ **Скакаць пад чыю дудку** (неадабр.) — падпарадкоўвацца чужой волі. ‖ *аднакр.* **скакану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1, 2 і 5 знач.; разм.), **ско́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1, 2, 5 і 7 знач.) *і* **ско́чыць**, -чу, -чыш, -чыць (да 1 і 5 знач.). ‖ *наз.* **скака́нне**, -я, *н. і* **скок**, -у, *м.* (да 4 знач.).

**СКАКУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Конь з высокімі бегавымі якасцямі. *Арабскі с.* **2.** Спартсмен, які займаецца скачкамі. **3.** Той, хто танцуе (разм.). ‖ *ж.* **скаку́ха**, -і, *ДМ* -ку́се, *мн.* -і, -ку́х (да 3 знач.).

**СКАЛА́**, -ы́, *мн.* ска́лы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) скалы́, скал, *ж.* Каменная гара з вострымі выступамі, крутымі схіламі. *Падводная с.* ‖ *прым.* **ска́льны**, -ая, -ае.

**СКАЛАЛА́ЖАННЕ**, -я, *н.* Від спорту — узыходжанне на крутыя скалы.

**СКАЛАЛА́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца скалалажаннем. ‖ *ж.* **скалала́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак.

**СКАЛАМБУ́РЫЦЬ** *гл.* каламбурыць.

**СКАЛАМУ́ЦІЦЦА** *гл.* каламуціцца.

**СКАЛАМУ́ЦІЦЬ** *гл.* каламуціць.

**СКАЛАНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Задрыжаць, затрэсціся; страсянуцца, здрыгануцца. *Бярозка ад удару скаланулася.* **2.** Уздрыгнуць. *С. ад холаду.* **3.** *перан.* Моцна захваляваца. *Сэрца маё скаланулася ад непрыемнай весткі.* ‖ *незак.* **скалана́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СКАЛАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Прымусіць здрыгануцца, страсянуцца. *С. грушу. Вецер скалануў дзверы. Машыну скаланула на калдобіне* (безас.). **2.** *што.* Перамяшаць часцінкі вадкасці, страсянуўшы пасудзіну. *С. квас.* **3.** *безас., каго-што.* Перакрывіць, перасмыкнуць (пра сутаргавы рух). *Ад холаду яго скаланула.* **4.** *перан., каго-што.* Ахапіць, авалодаць (пра пачуцці, думкі); моцна ўзрушыць, усхваляваць. *Жаль скалануў сэрца маці.* **5.** *перан., каго (што).* Вымусіць каго-н. аддаць што-н. (разм.). *Калі скаланём, дык аддасць.* ‖ *незак.* **скалана́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СКАЛАПЕ́НДРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Невялікая членістаногая ядавітая жывёліна. ‖ *прым.* **скалапе́ндравы**, -ая, -ае.

**СКАЛДУ́НІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ніцца; *зак.* (разм.). Зблытацца, скудлаціцца (пра валасы, шэрсць і пад.).

**СКАЛДУ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што* (разм.). Зблытаць, скудлаціць (валасы, шэрсць і пад.).

**СКАЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які моцна змёрз, скалеў. *С., ледзь жывы, вярнуўся з лесу.* ‖ *наз.* **скале́ласць**, -і, *ж.*

**СКАЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Вельмі змерзнуць. *Скалелі рукі на марозе.*

**СКАЛЕ́ЧЫЦЦА** *гл.* калечыць.

**СКАЛЕ́ЧЫЦЬ** *гл.* калечыць.

**СКАЛІЁЗ**, -у, *м.* (спец.). Скрыўленне пазваночніка. ‖ *прым.* **скаліёзны**, -ая, -ае.

**СКАЛІ́СТЫ**, -ая, -ае. З мноствам скал; падобны на скалы. *Скалістыя горы.* ‖ *наз.* **скалі́стасць**, -і, *ж.*

**СКА́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *незак.* Скаліць зубы. *Звер злосна с.* ‖ *зак.* **аска́ліцца**, -люся, -лішся, -ліцца *і* **вы́скаліцца**, -люся, -лішся, -ліцца.

**СКА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак.* Раскрываючы губы, агаляць, паказваць зубы. ◊ **Скаліць зубы** — смяяцца, рагатаць (разм., неадабр.). ‖ *зак.* **аска́ліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены (да 1 знач.) *і* **вы́скаліць**, -лю, -ліш, -ліць, -лены.

**СКА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Вельмі цвёрды камень для выкрэсвання агню; крэмень. **2.** Тлушчавая кропля на зваранай страве (разм.). *Крупеня тлустая, аж скалкі плаваюць.* ‖ *памянш.* **ска́лачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **ска́лачны**, -ая, -ае.

**СКАЛМА́ЦІЦЦА** *гл.* калмаціцца.

**СКАЛМА́ЦІЦЬ** *гл.* калмаціць.

**СКАЛО́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., ско́лецца; *зак.* Аддзяліцца, адпасці пры ўдары (пра слой, кавалак чаго-н.). *Лёд лёгка скалоўся.* ‖ *незак.* **ско́лвацца**, -аецца.

**СКАЛО́ЦЦА**[2], скалю́ся, ско́лешся, ско́лецца; скалі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Змацавацца (шпількай і пад.). **2.** Зраніцца чым-н. вострым, калючым у многіх месцах. *С. іржышчам.* ‖ *незак.* **ско́лвацца**, -аецца (да 1 знач.).

**СКАЛО́ЦЬ**[1], скалю́, ско́леш, ско́ле; скалі́; ско́латы; *зак., што.* Аддзяліць слой, кавалак чаго-н. ударам; збіць. *С. лёд з ганка.* ‖ *незак.* **ско́лваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ско́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж. і* **ско́лванне**, -я, *н.*

**СКАЛО́ЦЬ**[2], скалю́, ско́леш, ско́ле; скалі́; ско́латы; *зак., што.* **1.** Змацаваць разам што-н., сашпільваючы. *С. кускі матэрыі. С. шпількай пояс.* **2.** *і каго.* Зраніць у многіх месцах чым-н. вострым, калючым. *С. ногі іржышчам.* ‖ *незак.* **ско́лваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ско́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *ж. і* **ско́лванне**, -я, *н.*

**СКАЛУПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Калупаючы, садраць. *С. больку.* **2.** Калупаючы, сапсаваць. *С. стол цвіком.* ‖ *незак.* **скалу́пваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **скалу́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКАЛУПНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак. што* (разм.). Калупаючы, здзерці што-н. *С. струп з болькі.*

**СКАЛЫХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Зварухнуцца, захістацца. *Паверхня вады скалыхнулася. Калыска скалыхнулася* (гайданулася з боку ў бок). **2.** *перан.* Узрушыцца, захваляваца, прыйсці ў рух. *Бач, ад песні яго скалыхнуўся народ.*

**СКАЛЫХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* **1.** Зварухнуць, захістаць, прымусіць калыхацца. *Вецер скалыхнуў жыта. С. калыску* (гайдануць з боку ў бок). **2.** *перан.* Усхваляваць, узрушыць; парушыць спакой. *Навіна скалыхнула народ.*

**СКАЛЬКАВА́ЦЬ** *гл.* калькаваць.

**СКАЛЬКУЛЯВА́ЦЬ** *гл.* калькуляваць.

**СКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Камяністы, які складаецца з каменных горных парод (спец.), які робіцца ў камяністым грунце. *С. грунт. Скальныя работы.*

**СКАЛЬП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Зрэзаная з галавы скура з валасамі. *Зняць с.*

**СКАЛЬПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Зняць (знімаць) скальп. ‖ *наз.* **скальпава́нне**, -я, *н.* ‖ *зак.* таксама **аскальпава́ць**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны.

**СКА́ЛЬПЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Невялікі хірургічны нож. ○ **Светлавы скальпель** (спец.) — лазерны прамень, які выкарыстоўваецца ў хірургіі для рассячэння тканак. ‖ *прым.* **ска́льпельны**, -ая, -ае.

**СКАМА́НДАВАЦЬ** *гл.* камандаваць.

**СКАМАРО́СТВА**, -а, *н.* **1.** Занятак, прафесія скамарохаў. **2.** Блюзнерства, крыўлянне, камедыянцтва (разм., неадабр.). ‖ *прым.* **скамаро́шскі**, -ая, -ае. *Скамарошскае выступленне.*

**СКАМАРО́Х**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** У Старажытнай Русі: вандроўны акцёр, спявак-музыкант, вастраслоў і акрабат. **2.** *перан.* Пра несур'ёзнага чалавека, які пацяшае іншых сваімі камедыянцкімі, штукарскімі выхадкамі (разм., неадабр.). ‖ *прым.* **скамаро́хаў**, -ава.

**СКАМАРО́ШНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Паводзіць сябе несур'ёзна, як скамарох; крыўляцца. ‖ *наз.* **скамаро́шнічанне**, -я, *н.*

**СКАМБІНАВА́ЦЬ** *гл.* камбінаваць.

**СКАМЕ́ЧВАЦЬ** *гл.* скамячыць.

**СКАМПАНАВА́ЦЬ** *гл.* кампанаваць.

**СКАМПІЛЯВА́ЦЬ** *гл.* кампіляваць.

**СКАМПЛЕКТАВА́ЦЬ** *гл.* камплектаваць.

**СКАМПРАМЕТАВА́ЦЬ** *гл.* кампраметаваць.

**СКАМЯНЕ́ЛАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* скамянелы. **2.** Выкапнёвыя рэшткі арганізмаў — скамянелая жывёліна, расліна або якая-н. частка іх. *Знайсці с.*

**СКАМЯНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ператварыўся ў камень. *Скамянелае карэнне сасны.* **2.** *перан.* Нерухомы, застылы, безжыццёвы, абыякавы. *С. позірк. С. твар.* ‖ *наз.* **скамяне́ласць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**СКАМЯНЕ́ЦЬ** *гл.* камянець.

**СКАМЯЧЫ́ЦЦА** *гл.* камячыцца.

**СКАМЯЧЫ́ЦЬ**, -мячу́, -ме́чыш, -ме́чыць; -ме́чаны; *зак., што.* **1.** *гл.* камячыць. **2.** *перан.* Сказіць, сапсаваць. *С. даклад.* ‖ *незак.* **скаме́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКАНА́ННЕ**, -я, *н.* Канец жыцця, смерць. ◊ **Да скanання** — да апошняга ўздыху.

**СКАНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* Памерці (толькі пра чалавека). *Без яды можна і с.*

**СКАНДА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Падзея, учынак, якія ганьбяць яе ўдзельнікаў. *Палітычны с.* **2.** Сварка з крыкам, лаянкай і пад. *У пятай кватэры зноў с.*

**СКАНДАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго (што)* (кніжн.). Скандальнымі паводзінамі выклікаць у каго-н. пачуццё няёмкасці, абурэння.

**СКАНДАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто пастаянна ўчыняе скандалы (у 2 знач.), хто схільны да сварак. ‖ *ж.* **скандалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**СКАНДА́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *незак.* (разм.). Трапляць у скандальнае становішча. ‖ *зак.* **асканда́ліцца**, -люся, -лішся, -ліцца.

**СКАНДА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак.* **1.** Учыняць скандал (у 2 знач.); дэбашырыць. **2.** *каго (што).* Знеслаўляць. *Старога бацьку не скандальце.* ‖ *зак.* **наскандáліць**, -лю, -ліш, -ліць (разм.).

**СКАНДА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца скандалам (у 1 знач.), які ганьбіць каго-н. *Скандальная гісторыя.* **2.** Які пастаянна робіць скандалы (у 2 знач.). *Скандальная асоба. С. характар.* **3.** Які мае адносіны да скандалу. *С. дзень. Скандальная хроніка газет* (дзе апісана што-н. ганебнае). ‖ *наз.* **сканда́льнасць**, -і, *ж.*

**СКАНДЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., што.* **1.** Выразна выдзяляць пры вымаўленні састаўныя часткі верша (стопы, склады) націскамі, інтанацыяй. **2.** Выразна вымаўляць словы, вылучаючы кожны склад. *Увесь стадыён скандзіраваў: «Шай-бу! Шай-бу!»* ‖ *наз.* **скандзі́раванне**, -я, *н.*

**СКАНДЫНА́ВЫ**, -аў, *адз.* -на́ў, -на́ва, *м.* Насельніцтва Скандынаўскага паўвострава і некаторых астравоў на поўначы Еўропы (шведы, нарвежцы, датчане, ісландцы). ‖ *ж.* **скандына́ўка**, -і, *ДМ* -на́ўцы, *мн.* -і, -на́вак. ‖ *прым.* **скандына́ўскі**, -ая, -ае.

**СКАНДЭНСАВА́ЦЬ** *гл.* кандэнсаваць.

**СКАНСТРУЯВА́ЦЬ** *гл.* канструяваць.

**СКАНФУ́ЗІЦЦА** *гл.* канфузіцца.

**СКАНФУ́ЗІЦЬ** *гл.* канфузіць.

**СКАНЦЭНТРАВА́ЦЦА** *гл.* канцэнтравацца.

**СКАНЦЭНТРАВА́ЦЬ** *гл.* канцэнтраваць.

**СКАНЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Завяршэнне, давядзенне чаго-н. да канца; канец. *С. палявых работ.* ◊ **Да сканчэння свету** — вельмі доўга, назаўсёды. **Сканчэнне свету** — у хрысціянскім веравучэнні: канец, пагібель свету.

**СКА́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Пакрыць кaплямі, зака́паць. *С. абрус чарнілам.* **2.** Ка́паючы, зрасходаваць. *Усе каплі скапаў.* ‖ *незак.* **ска́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Капа́ючы, зрэзаць (выступ, нароўнасць глебы). *С. бугарок.* **2.** Пакапа́ць паверхню зямлі ў многіх месцах. *Крот скапаў увесь агарод.* ‖ *незак.* **ско́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКАПЕ́Ц**, -пца́, *мн.* -пцы, -пцо́ў, *м.* **1.** Чалавек або жывёліна, якія падвергліся кастрацыі. **2.** Член рэлігійнай секты ў Расіі, што ўзнікла ў канцы 18 ст. і прапаве-

давала барацьбу з плоцццю шляхам кастрацыі. || *прым.* **скапéцкі**, -ая, -ае.

**СКАПІ́РАВА́ЦЬ** *гл.* капіраваць.

**СКАРАБА́ЦІЦЦА** *гл.* карабаціцца.

**СКАРАБА́ЦІЦЬ** *гл.* карабаціць.

**СКАРАВА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Каструля з герметычнай накрыўкай для хуткага прыгатавання ежы.

**СКАРАДЗІ́ЦЬ** *гл.* скародзіць.

**СКАРАПІ́СНЫ** *гл.* скорапіс.

**СКАРАСПЕ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). Скараспелы плод, агародніна. *Бульба-с.*

**СКАРАСПЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які хутка і рана паспявае. *Скараспелая бульба.* **2.** *перан.* Надта паспешна зроблены, недастаткова падрыхтаваны, прадуманы (разм.). *Скараспелыя рашэнні.* || *наз.* **скараспе́ласць**, -і, *ж.* (да 1 знач., спец., і да 2 знач.).

**СКАРАСТРЭ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які робіць максімальную колькасць выстралаў у адзінку часу. *Скарастрэльная гармата.* || *наз.* **скарастрэ́льнасць**, -і, *ж.*

**СКАРАТА́ЦЬ** *гл.* каратаць.

**СКАРАХО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які вельмі хутка ходзіць, а таксама спартсмен — спецыяліст па хадзьбе, бегу (на лыжах, каньках). **2.** *уст.* Пасыльны, ганец.

**СКАРАЦЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які хутка праходзіць. *Скарацечныя радасці.* ○ **Скарацечныя сухоты** — туберкулёз, які хутка развіваецца. || *наз.* **скараце́чнасць**, -і, *ж.*

**СКАРАЦІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -роціцца; *зак.* **1.** Стаць кароткім або больш кароткім. *У жніўні дні скараціліся.* **2.** Зменшыцца колькасна або па велічыні, у аб'ёме. *Зарплата скарацілася.* **3.** Пра мышцы: напружыцца, сціснуцца, зменшыцца па велічыні, у аб'ёме. *Мышцы нагі скараціліся.* **4.** Звузіцца. *Вытворчасць скарацілася.* **5.** *спец.* У матэматыцы: выразіцца ў меншых ліках пасля дзялення на які-н. лік. || *незак.* **скарача́цца**, -аецца. || *наз.* **скарачэ́нне**, -я, *н.*

**СКАРАЦІ́ЦЬ**, -рачу́, -ро́ціш, -ро́ціць; -ро́чаны; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць кароткім або больш кароткім. *С. артыкул. С. тэрмін адпачынку.* **2.** *што.* Зменшыць колькасна або па велічыні, у аб'ёме. *С. пасевы жыта. С. расходы.* **3.** *каго (што).* Звольніць з работы, службы ў выніку скарачэння штату супрацоўнікаў (разм.). ○ **Скараціць дроб** — у матэматыцы: падзяліць лічнік і назоўнік на агульны дзельнік. || *незак.* **скарача́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **скарачэ́нне**, -я, *н.*

**СКАРА́ЦЦА** *гл.* скарыцца.

**СКАРА́ЦЬ** *гл.* скарыць.

**СКАРАЧЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* скараціцца, скараціць. **2.** Скарочанае абазначэнне, назва каго-, чаго-н. *Умоўныя скарачэнні.* **3.** Пропуск у якім-н. тэксце. *Раман друкуецца са скарачэннямі.* **4.** Звальненне з работы (разм.). *С. штатаў.* **5.** У словаўтварэнні: усячэнне слова, а таксама частка слова ці цэлае слова, утвораныя шляхам такога ўсячэння. *Слоўнік скарачэнняў.*

**СКАРБ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** звычайна *мн.* Грошы, каштоўныя дарагія рэчы, каштоўнасці, схаваныя дзе-н. *Незлічоныя скарбы і багацце.* **2.** *перан.;* звычайна *мн.* Духоўныя і культурныя каштоўнасці (кніжн.). *Скарбы духоўнай культуры беларускага народа.* **3.** *перан.* Пра каго-, што-н. вельмі вялікай вартасці. *Гэты артыст — сапраўдны с.* **4.** Багацце, маёмасць, хатнія рэчы. *Уласны с.*

**СКА́РБНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** *уст.* Месца захоўвання дарагіх рэчаў, каштоўнасцей. *Княжаская с.* **2.** *перан.* Сукупнасць культурных, духоўных каштоўнасцей, сканцэнтраванне чаго-н. вельмі каштоўнага. *Паэзія Якуба Коласа і Янкі Купалы — с. беларускай літаратуры.*

**СКАРБО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Бляшанка, скрыначка з вузкай шчылінай для збірання і захоўвання грошай. *Ссыпаць манеты ў скарбонку.* **2.** Тое, што і *скарбніца* (у 2 знач.). || *прым.* **скарбо́начны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *С. збор.*

**СКА́РГА**, -і, *ДМ* -рзе, *мн.* -і, -аў, *ж.* **1.** Выражэнне незадавальнення, нараканне з прычыны непрыемнасцей. *Скаргі дзяцей.* **2.** Афіцыйная заява аб незаконным дзеянні якой-н. асобы, установы, арганізацыі. *Напісаць скаргу. Кніга скаргаў.* || *прым.* **ска́ргавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**СКА́РДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *незак.* **1.** *на каго-што* і *са злуч.* «што». Выказваць скаргі (у 1 знач.). *С. на нястачу. Яна скардзіцца, што ўвесь час хворая.* **2.** *на каго-што.* Падаваць скаргу (у 2 знач.). *С. ў суд.* **3.** *на каго (што).* Даносіць, нагаворваць (разм.). *С. начальству на калегу.* || *зак.* **паска́рдзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца *і* **наска́рдзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца (да 3 знач.).

**СКА́РЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто падае скаргу (у 2 знач.). || *ж.* **ска́ржніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**СКАРМІ́ЦЬ**, скармлю́, скормі́ш, скормі́ць; скормлены; *зак., што.* Зрасходаваць на корм каму-н. *С. каровам кукурузны сілас.* || *незак.* **скормліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКАРО́ДЗІЦЬ**, -ро́джу, -ро́дзіш, -ро́дзіць *і* **СКАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; *незак., што* і *без дап.* Разрыхляць бараной зямлю. || *зак.* **паскаро́дзіць**, -ро́джу, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны і **заскаро́дзіць**, -ро́джу, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны. || *наз.* **скаро́джанне**, -я, *н. і* **скарадзьба́**, -ы́, *ж.*

**СКАРО́МІНА**, -ы, *ж.* (разм.). Скаромная ежа, скаромнае. *У набожных сем'ях не дазвалялася есці ў пост скароміну.*

**СКАРО́МІЦЦА**, -млюся, -мішся, -міцца; *незак.* (разм.). Есці ў пост скаромную ежу. || *зак.* **аскаро́міцца**, -млюся, -мішся, -міцца.

**СКАРО́МІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; *незак., каго-што* (разм.). Карміць скаромнай ежай у посныя дні. || *зак.* **аскаро́міць**, -млю, -міш, -міць.

**СКАРО́МНЫ**, -ая, -ае. Пра малочную, мясную ежу, якую не ўжываюць вернікі ў час посту. *Скаромная ежа. Не есці скаромнага* (наз.).

**СКАРО́ЧВАЦЦА** *гл.* скарацiцца.

**СКАРПІЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ядавітая павукападобная членістаногая жывёліна, якая водзіцца ў трапічных і субтрапічных паясах. || *прым.* **скарпіёнавы**, -ая, -ае. *С. яд.*

**СКАРЧАНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які азябнуў ад холаду; замерзлы. *Скарчанелыя пальцы.* || *наз.* **скарчане́ласць**, -і, *ж.*

**СКАРЧАНЕ́ЦЬ** *гл.* карчанець.

**СКАРЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Цвёрды вонкавы слой хлеба, батона і пад. *Цвёрдая с. ў пірага.* **2.** Верхні зацвярдзелы слой чаго-н. *Снегавая с.* || *памянш.* **скары́начка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). || *прым.* **скары́нкавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**СКАРЫСТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Выкарыстаць каго-, што-н. для якой-н. справы; знайсці прымяненне каму-, чаму-н. *С. вольны час для падрыхтоўкі. С. рукапісныя матэрыялы.* || *незак.* **скарысто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **скарыста́нне**, -я, *н.*

**СКАРЫ́ЦЦА**, скару́ся, ско́рышся, ско́рыцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *пакарыцца.* || *незак.* **скара́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СКАРЫ́ЦЬ**, скару́, ско́рыш, ско́рыць; ско́раны; *зак.* (разм.). Тое, што і *пакарыць.* || *незак.* **скара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СКАРЭКЦІ́РАВАЦЬ** *гл.* карэкціраваць.

**СКАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які скарэў, стаў сухім; зацвярдзелы ад бруду. *С. ад гразі шынель.*

**СКАСАБО́ЧЫЦЦА** *гл.* касабочыцца.

**СКАСАВА́ЦЬ** *гл.* касаваць.

**СКАСАВУ́РЫЦЦА** *гл.* касавурыцца.

**СКАСАВУ́РЫЦЬ** *гл.* касавурыць.

**СКАСІ́ЦЦА** *гл.* касіцца.

**СКАСІ́ЦЬ**[1] *гл.* касіць[1].

**СКАСІ́ЦЬ**[2] *гл.* касіць[2].

**СКАТ**[1], -а, *М* ска́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Камплект колаў для воза, вагона, паравоза. || *прым.* **ска́тны**, -ая, -ае.

**СКАТ**[2], -а, *М* ска́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйная драпежная марская рыба з плоскім целам і вострым хвастом.

**СКАТ**[3], -а, *М* ска́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Нахільная паверхня чаго-н., пакаты спуск. *Бераг Нёмана з высокім пясчаным скатам.*

**СКАТАВА́ЦЬ** *гл.* катаваць.

**СКА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Шынель, скручаны ў трубку і звязаны на канцах для нашэння цераз плячо. *Салдацкая с.*

**СКАФА́НДР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Герметычны вадалазны касцюм для работы пад вадой, а таксама спецыяльны касцюм касманаўтаў. || *прым.* **скафа́ндравы**, -ая, -ае.

**СКАЦІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** *зб.* Буйная сельскагаспадарчая жывёла. *Пасвіць скаціну. Пагнаць скаціну ў поле.* **2.** *перан.* Грубы, бяздушны чалавек (груб., лаянк.).

‖ *памянш.-ласк.* **скаці́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* (да 1 знач.).

**СКАЦІ́ЦЦА**, скачу́ся, скóцішся, скóціцца; *зак.* **1.** Коцячыся па паверхні, спусціцца, з'ехаць, упасці. *Мячык скаціўся з гары.* **2.** *перан.* Адысці, адступіць (звычайна ад чаго-н. перадавога, прагрэсіўнага). *С. ў балота бюракратызму.* ‖ *незак.* **скóчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *наз.* **скóчванне**, -я, *н.*

**СКАЦІ́ЦЬ**, скачу́, скóціш, скóціць; скóчаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Коцячы па нахільнай паверхні, спусціць. *С. камень з гары. С. бервяно з калёс.* **2.** Тое, што і *скаціцца* (разм.). *С. з гары на мапедзе.* **3.** *каго-што.* Коцячы, сабраць у адно месца. *С. круглякі ў кучу.* ‖ *незак.* **скóчваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **скóчванне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**СКАЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** *гл.* качаць. **2.** Качаючы, надаць круглую форму чаму-н. *С. з хлеба галушку. С. у трубку шпалеры.* **3.** Качаючыся, прыціснуць да зямлі, змяць (разм.). *С. пасевы жыта.* ‖ *незак.* **ска́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКАЧКАПАДÓБНЫ**, -ая, -ае. Які развіваецца скачка́мі, без плаўных пераходаў ад аднаго да другога; нераўнамерны. *Скачкападобнае развіццё.* ‖ *наз.* **скачкападóбнасць**, -і, *ж.*

**СКА́ЧКІ**, -чак. Від коннага спорту — спаборніцтвы на верхавых конях. *С. з перашкодамі.* ‖ *прым.* **скакавы́**, -а́я, -óе. *С. конь. Скакавыя спаборніцтвы.*

**СКАЧÓК**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чкóў, *м.* **1.** Хуткае перамяшчэнне цела адштурхоўваннем ад якога-н. пункта апоры. *С. зайца.* **2.** *перан.* Рэзкае змяненне чаго-н. *С. зарплаты. С. узроўню вады.* **3.** Пераход ад старога якаснага стану да новага ў выніку колькасных змяненняў (кніжн.). ‖ *прым.* **скачкóвы**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *С. механізм* (у кінаапаратуры: які скачкападобна, рыўкамі перамяшчае кінастужку пры змене кадраў).

**СКВА́ПНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прагны да багацця і нажывы, хцівы. **2.** *на што, да чаго.* Які прагна імкнецца мець што-н. у вялікай колькасці. *С. на кнігі.* ‖ *наз.* **сква́пнасць**, -і, *ж.*

**СКВА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Падсмажаны кавалачак сала. *Напячы сквaрак.*

**СКВА́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пячыся на агні; смажыцца. *У печы скварыцца свежае сала.* **2.** *перан.* Грэцца на сонцы; быць у вельмі гарачым месцы (разм.). ‖ *зак.* **сасква́рыцца**, -руся, -рышся, -рыцца.

**СКВА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *незак., што.* **1.** Пячы на агні сала. *С. свежаніну.* **2.** *перан.* і *без дап.* Паліць (пра сонца; разм.). *Цэлы дзень скварыць сонца.* ‖ *зак.* **саскварыць**, -ру, -рыш, -рыць; -раны (да 1 знач.) *і* **засква́рыць**, -ру, -рыш, -рыць; -раны (пра страву). ‖ *наз.* **сква́ранне**, -я, *н.*

**СКВА́СІЦЬ**, -ва́шу, -ва́сіш, -ва́сіць; -ва́шаны; *зак., што.* Зрабіць што-н. квашаным. *С. капусту. С. малако.*

**СКВЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі гарадскі грамадскі сад. ‖ *памянш.* **скве́рык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**СКВІРЧЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чыць; *незак.* (разм.). Верашчаць, пішчаць, патрэскваць на гарачай скаварадзе (пра сала і пад.).

**СКВІТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., з кім-чым* (разм.). **1.** Разлічыцца з кім-н., аддаць доўг каму-н. *С. з даўгамі.* **2.** *перан.* Пакончыць разлікі з кім-, чым-н., скончыць якую-н. справу. *С. з залікам.* **3.** *перан.* Адпомсціць крыўдай за крыўду. *С. з крыўдзіцелямі.*

**СКВІТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). **1.** Разлічыцца з кім-н., аддаць пазычанае. *С. даўгі.* **2.** У спорце: зрабіць лік аднолькавым; адыграцца. *С. мяч, шайбу* (забіць мяч, шайбу) *у адказ. С. лік.*

**СКЕ́МІЦЬ** *гл.* кеміць.

**СКЕ́ПСІС**, -у, *м.* (кніжн.). Тое, што і *скептыцызм* (у 2 знач.).

**СКЕ́ПТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Прыхільнік скептыцызму (у 1 знач.). **2.** Чалавек, які ва ўсім сумняваецца, да ўсяго адносіцца з недаверам.

**СКЕПТЫЦЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Філасофскі кірунак, які падвяргае сумненню магчымасць пазнання аб'ектыўнай рэчаіснасці. **2.** Крытычна-недаверлівыя адносіны да чаго-н., крайняе сумненне ў правільнасці чаго-н. ‖ *прым.* **скепты́чны**, -ая, -ае. ‖ *наз.* **скепты́чнасць**, -і, *ж.* (паводле 2 знач.).

**СКЕ́РЦА**, *нескл., н.* Невялікі музычны твор хуткага тэмпу. ‖ *прым.* **скерцóзны**, -ая, -ае (спец.) *і* **скерцыёзны**, -ая, -ае (спец.).

**СКЕТЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікая эстрадная п'еса жартаўлівага зместу. ‖ *прым.* **ске́тчавы**, -ая, -ае.

**СКІ́БА**, -ы, *мн.* -ы, скіб, *ж.* **1.** Луста (звычайна хлеба). *Дзве скібы хлеба.* **2.** Пласт узаранай зямлі. ‖ *памянш.* **скі́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* ‖ *памянш.-ласк.* **скі́бачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**СКІ́ВІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -віц, *ж.* **1.** Кожная з дзвюх костак твару, у якіх умацаваны зубы. *Верхняя с. Ніжняя с.* **2.** Пласцінка са штучнымі зубамі, зубны пратэз. *Устаўная с.* ‖ *прым.* **скі́вічны**, -ая, -ае.

**СКІД**, -у, *М* -дзе, *м.* У геалогіі: перамяшчэнне часткі горных парод па трэшчыне ў вертыкальным або нахільным кірунку. ‖ *прым.* **скі́давы**, -ая, -ае. *Скідавыя горы.*

**СКІДА́ЦЦА** *гл.* скінуцца.

**СКІ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Скінуць з чаго-н. у некалькі прыёмаў. *С. сена з машыны.* **2.** Кідаючы, сабраць што-н. у адно месца. *С. траву ў кучу. С. стог.* **3.** Зрабіць сяк-так якую-н. будыніну (разм.). *С. лазеньку.*

**СКІДА́ЦЬ** *гл.* скінуць.

**СКІ́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Сума, на якую зменшана цана на што-н. *С. з падаткаў. Тавар са скідкай.* **2.** Заніжанае патрабаванне да каго-, чаго-н.; уступка. *Не даваць ніякай скідкі.*

**СКІ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** Упасці з чаго-н. *Мячык скінуўся з ложка.* **2.** Сабраць грошы на якую-н. справу; скласціся. *С. на падручнік.* **3.** Пра карты: згуляць (разм.). *С. ў карты.* ‖ *незак.* **скіда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **скі́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **скіда́нне**, -я, *н. і* **скі́дванне**, -я, *н.*

**СКІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; скінь; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Кінуць уніз з чаго-н. *С. снег са страхі. С. дэсант.* **2.** *што.* Зняць з сябе (вопратку, абутак і пад.), рыўком адкінуць што-н. з чаго-н. *С. боты. С. з галавы хустку.* **3.** *што.* Паменшыць на якую-н. колькасць, велічыню (разм.). *С. сотні дзве. Эх, с. бы гадоў дзесяць!* **4.** *перан.* Вызваліцца ад чыйго-н. панавання, звергнуць, пазбавіць улады. *С. путы няволі* (высок.). **5.** *што.* У гідратэхніцы: адвесці ваду з якога-н. вадаёма. *С. воды ў мора.* ‖ *незак.* **скіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **скі́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **скіда́нне**, -я, *н. і* **скі́дванне**, -я, *н.*

**СКІ́ПЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Жазло з каштоўнымі камянямі і разьбой — знак царскай улады.

**СКІРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *зак.* **1.** Пайсці ў якім-н. напрамку. *С. да лесу.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Прыняць пэўны кірунак, схіліцца куды-н. *Жыццё скіравалася ў лепшы бок.* ‖ *незак.* **скірóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СКІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго-што.* **1.** Накіраваць каго-, што-н. у якім-н. напрамку. *С. каня ў лес. С. позірк у акно.* **2.** *перан.* Даць пэўны кірунак каму-, чаму-н., схіліць да чаго-н. *С. народ на рэферэндум. С. думкі ў пэўным напрамку.* ‖ *незак.* **скірóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКІ́СЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Пракіслы, які стаў кіслым. *С. салат. Скіслая сыроватка.* **2.** *перан.* Які страціў бадзёрасць, стаў вялым. *Што гэта ты нейкі с.?*

**СКІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; скіс, -сла; -ні; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць кіслым; пракіснуць. *Суп скіс.* **2.** *перан.* Зрабіцца вялым, сумным, страціць упэўненасць (разм.). *Скісла ад такіх навін.* ‖ *незак.* **скіса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СКІТ**, -а, *М* скі́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі пасёлак у аддаленні ад манастыра для манахаў-пустэльнікаў, а таксама невялікі асобны манастыр у глухой мясцовасці. ‖ *прым.* **скі́цкі**, -ая, -ае.

**СКІФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вузкая доўгая і лёгкая гоначная лодка для акадэмічнай грэблі.

**СКІ́ФЫ**, -аў, *адз.* скіф, -а, *м.* Агульная назва стэпавых плямён, якія вандравалі або жылі аседла за некалькі вякоў да н.э. ў паўночным Прычарнамор'і і прылеглых да яго тэрыторыях. ‖ *прым.* **скі́фскі**, -ая, -ае.

**СКЛАД**[1], -а, *М* -дзе, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Спецыяльнае месца, памяшканне для захоўвання чаго-н. *С. для розных прамысловых тавараў.* **2.** Запас тавараў, матэрыялаў,

зложаных у адным месцы. *Склады сыравіны.* ‖ *прым.* **складскі́**, -ая, -óе.

**СКЛАД**[2], -у, *М* -дзе, *м.* **1.** Сукупнасць частак, якія ўтвараюць адзінае цэлае; структура. *Лексічны с. мовы.* **2.** *чаго* або *які.* Сукупнасць людзей, якія ўтвараюць які-н. калектыў, арганізацыю. *С. праўлення.* **3.** Постаць, фізічны выгляд, будова (чалавека, жывёліны). *Спартыўнага складу юнак.* **4.** Асаблівасці думак, розуму і звычак, характар чаго-н. *Паэтычны с. душы. Нацыянальны с. характару.* **5.** Парадак, сэнс, зладжанасць. *Жадаю вам ладу і складу.*

**СКЛАД**[3], -а, *М* -дзе, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Гук або спалучэнне гукаў, што вымаўляюцца адным штуршком выдыхнутага паветра. *Націскны с. Дзяліць словы на склады.* ○ **Адкрыты склад** — склад, які канчаецца на галосны гук. **Закрыты склад** — склад, які канчаецца на зычны гук. ‖ *прым.* **складóвы**, -ая, -ае. *Складовае пісьмо* (у якім знакамі абазначаюцца склады, а не гукі).

**СКЛАДА́ЕМАЕ** -ага, *н.* У матэматыцы: велічыня (лік), якая складваецца з другой велічынёй (лікам).

**СКЛАДА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто складае што-н., аўтар. ‖ *ж.* **склада́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **склада́льніцкі**, -ая, -ае.

**СКЛАДАНАЗАЛЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. У граматыцы: які адносіцца да пабудовы складаных сказаў па спосабе падпарадкавання. *С. сказ.*

**СКЛАДАНАЗЛУ́ЧАНЫ**, -ая, -ае. У граматыцы: які адносіцца да пабудовы складаных сказаў па спосабе злучэння. *С. сказ.*

**СКЛАДАНАКВЕ́ТНЫЯ**, -ых, *адз.* -ае, -ага, *н.* (спец.). Сямейства двухдольных травяністых раслін з дробнымі кветкамі, сабранымі ў сукveцце, падобнае на адну кветку.

**СКЛАДАНАСКАРО́ЧАНЫ**, -ая, -ае. У словаўтварэнні: утвораны са скарочаных частак двух або некалькіх слоў, якія ўваходзяць у склад якіх-н. назваў (напр., спецкар — спецыяльны карэспандэнт).

**СКЛАДА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* складаць. **2.** У матэматыцы: дзеянне, пры дапамозе якога з двух або некалькіх лікаў (складаемых) атрымліваюць новы (суму), які мае столькі адзінак, колькі было ва ўсіх дадзеных ліках разам. **3.** У мовазнаўстве: слова, што ўтворана з дзвюх або некалькіх асноў і прадстаўляе лексічную адзінку, якая мае граматычныя і семантычныя адзнакі паасобнага слова; складанае слова (напр.: *збожжаўборачны, першадрукар*).

**СКЛАДА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які складаецца з некалькіх частак, разнастайны па складзе частак і сувязей паміж імі. *Складанае рэчыва. С. сказ.* **2.** Цяжкі для разумення, ажыццяўлення і пад. *Складаная матэматычная задача. Складанае становішча. Складаная аперацыя.* **3.** Які спалучае ў сабе розныя, часта супярэчлівыя бакі, рысы (пра характар і пад.). *Складаныя пачуцці і думкі.* **4.** Які можна складваць дзякуючы рухомаму злучэнню частак. *С. нож. Складанае крэсла.* ‖ *наз.* **склада́насць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**СКЛАДАПАДЗЕ́Л**, -у, *м.* У мовазнаўстве: мяжа паміж двума сумежнымі складамі ў слове.

**СКЛАДАЎТВАРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Пра гук: які можа ўтварыць склад.

**СКЛАДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* скласціся. **2.** Мець у сваім складзе каго-, што-н., быць складзеным з каго-, чаго-н. *Падручнік складаецца з двух раздзелаў.*

**СКЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *гл.* скласці. **2.** Быць састаўной часткай чаго-н.; утвараць сабой што-н. *Большую частку праграмы складалі народныя песні.*

**СКЛА́ДАЧНЫ**, -ая, -ае. Прыстасаваны для склада[1] (у 1 знач.), складвання чаго-н. *Складачныя памяшканні.*

**СКЛАДЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.*, *што* (спец.). Змясціць (змяшчаць) на складзе[1] (у 1 знач.), у сховішчы. *С. зерне.* ‖ *наз.* **складзі́раванне**, -я, *н.*

**СКЛА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Роўна складзеная ў дзве столкі і загнутая палоска на тканіне, паперы. *Пашыць спадніцу ў складкі.* **2.** Прамалінейны згіб на штаніне. *Штаны з адпрасаванымі складкамі.* **3.** Няроўнасць, хвалісты згіб на тканіне, паперы. *С. на паліто.* **4.** Адвіслась або маршчына на скуры, целе. *Адвіслыя складкі на шыі.* **5.** Згіб у пластах зямной кары. *Складкі горных парод* (спец.). ‖ *памянш.* **скла́дачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1—3 знач.).

**СКЛАДКАВА́ТЫ**, -ая, -ае (спец.). Утвораны складкамі, са складкамі. *Складкаватыя горы.* ‖ *наз.* **складкава́тасць**, -і, *ж.*

**СКЛА́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пра мову, пісьмо і пад.: звязны, паслядоўны, лагічны. *Складная прамова. Складная песня.* **2.** Зграбны, стройны (разм.). *Складная дзяўчына.* ‖ *наз.* **скла́днасць**, -і, *ж.*

**СКЛАДНЫ́**, -а́я, -óе. Такі, які можна складваць дзякуючы рухомаму злучэнню частак. *С. метр.*

**СКЛАДСКІ́** *гл.* склад[1].

**СКЛА́ДЧЫНА**, -ы, *ж.* Унясенне грошай, прадуктаў і пад. ўдзельнікамі якой-н. агульнай справы. *Купіць дом у складчыну.*

**СКЛАНЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* скланяцца, скланяць. **2.** Змяненне па склонах слоў, якія належаць да іменных часцін мовы. *Назоўнікі першага, другога, трэцяга скланення.*

**СКЛАНЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́ецца; *незак.* **1.** Змяняцца па склонах. **2.** *перан.* Часта ўпамінацца (звычайна непрыхільна; разм.). *Яго прозвішча часта скланяецца на сходах.* ‖ *наз.* **скланéнне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**СКЛАНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* **1.** *што.* Змяняць іменныя часціны мовы па іх граматычных формах. *С. назоўнікі.* **2.** *перан., каго-што.* Часта ўпамінаць, многа гаварыць пра каго-, што-н. (звычайна непрыхільна; разм.). ‖ *зак.* **праскланя́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 1 знач.). ‖ *наз.* **скланéнне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**СКЛА́СЦІ**, складу́, складзе́ш, складзе́; складзём, складзяце́, складу́ць; складзі; скла́дзены; *зак., што.* **1.** *гл.* класці. **2.** Пакласці разам у пэўным парадку. *С. дровы пад навес. С. рэчы ў рукзак* (падрыхтаваць да ад'езду). **3.** Прыбавіць адзін лік да другога, зрабіць складанне. *С. дзве сумы.* **4.** Падрыхтаваць што-н. на падставе сабраных звестак, стварыць, напісаць. *С. слоўнік беларускай мовы. С. справаздачу. С. спіс супрацоўнікаў. С. песню.* **5.** Утварыць групу, камісію, падабраўшы людзей. *С. камітэт.* **6.** Перагнуўшы, сагнуўшы, прыдаць якую-н. форму, зменшыць аб'ём. *С. ліст паперы папалам. С. шэзлонг.* **7.** Зрабіць вывад на падставе назірання ў або лагічных заключэнняў. *С. уяўленне аб кім-н.* **8.** *перан.* Вызваліцца ад якіх-н. абавязкаў. *С. свае паўнамоцтвы. Ён усю віну склаў на мяне.* ◊ **Скласці зброю** — 1) здацца, спыніць узброенае супраціўленне; 2) адмовіцца ад барацьбы, ад якіх-н. дзеянняў. **Скласці рукі** (разм.) — перастаць дзейнічаць. ‖ *незак.* **скла́дваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **склада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **скла́дванне**, -я, *н. і* **склада́нне**, -я, *н.*

**СКЛА́СЦІСЯ**, складу́ся, складзе́шся, складзе́цца; складзёмся, складзяце́ся, складу́цца; складзі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Утварыцца з асобных частак, элементаў. *З асобных кніг і часопісаў склалася невялікая бібліятэка.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Узнікнуць, з'явіцца ў працэсе творчасці (пра песню, верш і пад.). *У людзей склалася многа легенд пра гэта страшнае месца ў лесе.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выпрацавацца, устанавіцца, сфарміравацца. *У мяне склалася добрае ўяўленне аб фільме.* **4.** Набыць якую-н. форму, выгляд (пра губы, рукі, ногі, цела чалавека). **5.** Зрабіць складчыну (разм.). *С. на паездку за горад.* **6.** Спакаваць, падрыхтаваць свае рэчы для ад'езду (разм.). *С. для ад'езду.* **7.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Атрымацца ў выніку пошукаў. *Дзённікавыя запісы скла́ліся ў асобнае апавяданне.* ‖ *незак.* **скла́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **склада́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **скла́дванне**, -я, *н.* (да 4 знач.).

**СКЛЕ́ІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., склéіцца; *зак.* **1.** Змацавацца пры дапамозе клею, зліпнуцца ад чаго-н. клейкага. *Паперы склеіліся.* **2.** *перан.* Наладзіцца, аднавіцца (разм.). *Справа склеілася. Сямейнае жыццё склеілася.* ‖ *незак.* **склéйвацца**, -аецца.

**СКЛЕ́ІЦЬ**, склéю, склéіш, склéіць; склéены; *зак., што.* **1.** *гл.* клеіць. **2.** Змацаваць клеем. *С. лісты паперы.* **3.** *перан.* Наладзіць, аднавіць (разм.). *Не с. дружбу пасля такой сваркі.* ‖ *незак.* **склéйваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 і 3 знач.). ‖ *наз.* **склéйванне**, -я, *н. і* **склéйка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.*

**СКЛЕП**, -а, *мн.* скляпы́, скляпо́ў, *м.* **1.** Паглыбленае ў зямлю, закрытае памяшканне для захоўвання прадуктаў, віна, пораху і пад. *Вінны с. Парахавы с.* **2.** Закрытае падземнае памяшканне, у якім устанаўліваюцца дамавіны з нябожчыкамі. *Пахавальны с.* || *памянш.* **скляпо́к**, -пка́, *мн.* -пкі́, -пко́ў, *м.* || *прым.* **склепавы**, -ая, -ае. *Склепавая сырасць.*

**СКЛЕРО́З**, -у, *м.* Ушчыльненне органаў у выніку перараджэння іх тканкі ў цвёрдую злучальную тканку, у шчыльную масу. *С. сасудаў. С. ныркі.* || *прым.* **склераты́чны**, -ая, -ае *і* **склеро́зны**, -ая, -ае. *Склератычны працэс. Склерозныя з'явы.*

**СКЛЕРО́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які хварэе на склероз. || *ж.* **склераты́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**СКЛЁПАЧНЫ** *гл.* скляпаць.

**СКЛЁПВАННЕ** *гл.* скляпаць.

**СКЛЁПВАЦЬ** *гл.* скляпаць.

**СКЛЁПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* **1.** *гл.* скляпаць. **2.** Месца, дзе скляпана што-н.

**СКЛЁЎВАЦЬ** *гл.* скляваць.

**СКЛІ́КАЦЬ**, склі́чу, склі́чаш, склі́ча; скліч; склі́каны; *зак.* **1.** *каго (што).* Паклікаўшы, запрасіўшы, сабраць у адным месцы (многіх). *С. сяброў у госці.* **2.** *каго-што.* Сабраць удзельнікаў (сходу, нарады, калегіяльнага органа і пад.) для работы. *С. сесію.* || *незак.* **склікáць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **склікáнне**, -я, *н.*

**СКЛО́КА**, -і, *ДМ* скло́цы, *мн.* -і, -ло́к, *ж.* Сварка, непрыязныя адносіны на глебе дробных інтрыг, барацьбы асабістых інтарэсаў. *Развесці склоку.*

**СКЛОН**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* У граматыцы: словазменная катэгорыя іменных часцін мовы, якая выражаецца флексіямі. *Родны с. Клічны с.* || *прым.* **скло́навы**, -ая, -ае. *Склонавыя канчаткі.*

**СКЛО́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (неадабр.). Чалавек, які займаецца склокамі. || *ж.* **скло́чніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. || *прым.* **скло́чніцкі**, -ая, -ае.

**СКЛО́ЧНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (неадабр.). Учыняць склокі. || *наз.* **скло́чніцтва**, -а, *н.*

**СКЛО́ЧНЫ**, -ая, -ае (неадабр.). **1.** Схільны да склок, да склочніцтва. *С. чалавек.* **2.** Які мае адносіны да склокі, з'яўляецца склокай. *Склочная справа.* || *наз.* **скло́чнасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**СКЛЮД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Цяслярская сякера для склюдавання, абчэсвання бярвення.

**СКЛЮДАВА́ЦЬ**, -дую, -дуеш, -дуе; -ду́й; -даваны; *незак., што.* Секучы ўдоўж, знімаць паверхневы слой (з дрэва). *С. сцены. С. дрэва.* || *наз.* **склюдава́нне**, -я, *н.*

**СКЛЯВА́ЦЬ**, склюю́, склюе́ш, склюе́; склюём, склюяце́, склюю́ць; склюй; скляваны; *зак., каго-што.* Клюючы, з'есці. *Куры склявалі пшаніцу.* || *незак.* **склёўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКЛЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** У маракоў: паўгадзінны прамежак часу. *Шэсць склянак* (тры гадзіны). *Удары склянак* (удары, якія адзначаюць прамежак часу). **2.** *мн.* У старадаўнім парусным флоце: суднавы пясочны гадзіннік, які вымярае час па паўгадзінах. || *прым.* **скля́начны**, -ая, -ае.

**СКЛЯПА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе *і* скляплю́, склéплеш, склéпле; -па́й; -па́ны; *зак., што.* Злучыць пры дапамозе кляпання. || *незак.* **склёпваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **склёпванне**, -я, *н. і* (спец.) **склёпка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* || *прым.* **склёпачны**, -ая, -ае.

**СКЛЯПЕ́НІСТЫ**, -ая, -ае. Які мае форму скляпення, утварае скляпенне (у 1 знач.). *Скляпеністая столь.*

**СКЛЯПЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Дугападобнае перакрыццё, якое злучае сцены, апоры пэўнага збудавання. *Гатычнае с.* **2.** Падвальнае памяшканне.

**СКЛЯСЦІ́**, скляну́, скляне́ш, скляне́; склянём, скленяце́, скляну́ць; скляў, -ляла́, -ло́; скляні́; *зак., каго-што.* Падвергнуць праклёну, праклясці. *С. чалавека.*

**СКНА́РА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, скнар (разм.). Вельмі скупы чалавек.

**СКНА́РЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Надзвычай скупы, прагны (пра чалавека). || *ж.* **скна́рлівасць**, -і, *ж.*

**СКНА́РНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Быць скнарай, скупіцца. || *зак.* **пaскна́рнічаць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКО́БАЧНЫ** *гл.* скаба.

**СКО́БКА** *гл.* скаба.

**СКО́БЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Інструмент для акорвання і габлявання дрэва ў выглядзе паўкруглага ляза з дзвюма ручкамі на канцах; струг. || *прым.* **ско́блевы**, -ая, -ае.

**СКОК** *гл.* скакаць.

**СКО́КІ**, -аў (разм.). **1.** *гл.* скакаць. **2.** Танцы. *Пайсці ў с.*

**СКО́КНУЦЬ** *гл.* скакаць.

**СКОЛ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Месца, дзе што-н. сколата, адкалолася. *С. на мармуры.* **2.** Тое, што сколата, сколатыя кавалкі чаго-н. *Ледзяны с.*

**СКО́ЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* **1.** Адколаты кавалак чаго-н. *С. каменя.* **2.** *перан.* Дакладнае падабенства, копія з чаго-н. *Сколкі чужых думак.*

**СКО́ЛВАННЕ**[1] *гл.* скалоць[1].

**СКО́ЛВАННЕ**[2] *гл.* скалоць[2].

**СКО́ЛВАЦЦА**[1] *гл.* скалоцца[1].

**СКО́ЛВАЦЦА**[2] *гл.* скалоцца[2].

**СКО́ЛВАЦЬ**[1] *гл.* скалоць[1].

**СКО́ЛВАЦЬ**[2] *гл.* скалоць[2].

**СКО́ЛКА** *гл.* скалоць[1].

**СКО́МКАЦЬ** *гл.* комкаць.

**СКОН**, -у, *м.* Тое, што і *скананне.* ◊ **Да (самага) скону** (дзён, гадоў, жыцця) (разм.) — да (самай) смерці.

**СКО́НЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* **1.** Тое, што і *кончыцца* (у 1 і 2 знач.). **2.** Тое, што і *памерці* (у 1 знач.).

**СКО́НЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* Тое, што і *кончыць* (у 1—3 знач.).

**СКО́ПВАЦЬ** *гл.* скапаць.

**СКОРАГАВО́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Хуткае маўленне. *Гаварыць скорагаворкай.* **2.** Спецыяльна прыдуманая фраза, пабудаваная на спалучэнні гукаў, якія робяць цяжкім яе хуткае вымаўленне (напр.: ліска лашчыць лісяня, а ласіха — ласяня), хуткапрамаўлянка. || *прым.* **скорагаво́рачны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**СКО́РАМ**, -у, *м.* **1.** Скаромная (мясная або малочная) ежа. *Чым такі с., дык лепш нішчымніца* (прыказка). **2.** Тое, што і *мясаед.*

**СКОРАМІНУ́ЧЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Недаўгавечны, кароткатэрміновы.

**СКО́РАПІС**, -у, *м.* Хуткае злітнае пісьмо, пераважна ў старажытных рукапісах. || *прым.* **скарапі́сны**, -ая, -ае.

**СКОРАПСАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які хутка псуецца, калі захоўваецца не ў належных умовах. *С. прадукт.*

**СКО́РАСНЫ**, -ая, -ае *і* **СКАРАСНЫ́**, -áя, -óе. **1.** *гл.* скорасць. **2.** Які дзейнічае, працуе на вялікай скорасці. *Скораснае рэзанне металаў.*

**СКО́РАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, скарасце́й, *ж.* **1.** Ступень хуткасці руху, якога-н. дзеяння. *Вялікая с. у машыны. С. выканання даручэння. С. бегу.* **2.** Ступень хуткасці дастаўкі грузаў (спец.). *Пасажырская с.* **3.** У механіцы: адносіны пройдзенага целам шляху да адпаведнага прамежку часу (спец.). *Сярэдняя с. Раўнамерная с.* || *прым.* **ско́расны**, -ая, -ае *і* **скарасны́**, -áя, -óе (да 1 і 3 знач.).

**СКОРАСШЫВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Папка з прыстасаваннем для змацавання папер.

**СКО́РМЛІВАЦЬ** *гл.* скарміць.

**СКО́РЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адбываецца з вялікай скорасцю, у кароткі прамежак часу; які мае вялікую скорасць. *С. ход. С. цягнік. Скоры* (наз.) *прыбывае да першай платформы. Скора* (прысл.) *ідзе.* **2.** *перан.* Здольны хутка працаваць, дзейнічаць; схільны спяшацца (разм.). *С. ў рабоце. Да стала — с., а на сенажаць — хворы* (прыказка). **3.** Які адбываецца ў кароткі час, тэрмін. *С. ад'езд.* **4.** Які павінен адбыцца хутка. *Да скорага спаткання!* ◊ **На скорую руку** (зрабіць што-н.; разм.) — хутка і неакуратна.

**СКО́СА**, *прысл.* **1.** Скасіўшы вочы. **2.** *перан.* Недаверліва, недружалюбна. *Браты не ладзяць між сабой, с. глядзяць адзін на аднаго.* **3.** Па дыяганалі, пад вуглом да прамога напрамку.

**СКО́САК**, -ска, *мн.* -скі, -скаў, *м.* **1.** Коса зрэзаны клін тканіны, дрэва і пад. **2.** Каса, якая за доўгі час працы зрэзалася, стала вузкай.

**СКО́ЎВАННЕ** *гл.* скаваць.

**СКО́ЎВАЦЬ** *гл.* скаваць.

**СКО́ЎЗАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *зак.* (разм.). Стаць тонкім ад слізгання, трэння; сцерціся. *Канькі скоўзаліся.* || *незак.* **ско́ўзвацца**, -аецца.

**СКО́ЎЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). **1.** Коўзаннем, трэннем сцер-

ці верхні слой чаго-н. *С. падэшвы. С. палазы ў санях.* **2.** Качаючыся, пакамячыць што-н. *С. пасцель.* || *незак.* **скóўзваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКÓЎКА** *гл.* скаваць.

**СКÓЦІСТЫ**, -ая, -ае. Спадзісты, адхонны. *С. бераг возера.* || *наз.* **скóцістасць**, -і, *ж.*

**СКÓЧВАННЕ** *гл.* скаціць.

**СКÓЧВАЦЦА** *гл.* скаціць.

**СКÓЧВАЦЬ** *гл.* скаціць.

**СКÓЧЫЦЬ** *гл.* скакаць.

**СКÓШВАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *касіць*[1] (у 1 знач.).

**СКÓШВАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *касіць*[2] (у 1 знач.).

**СКРÁБАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Скрабучы, драпаючы чым-н., рабіць шум. *У запечку скрабае мыш.* || *наз.* **скрáбанне**, -я, *н.*

**СКРАБÉННЕ** *гл.* скрэбці.

**СКРАБЛÓ**, -á, *мн.* скрэ́блы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) скраблы́, скрэ́блаў, *м.* Тое, што і *скрэбла.*

**СКРАБНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* Металічная шчотка для чысткі коней.

**СКРАБÓК**, -бкá, *мн.* -бкí, -бкóў, *м.* **1.** Вострая лапатка для саскрэбвання чаго-н. **2.** Вялікі шуфель з вострым краем для чэрпання грунту або якога-н. сыпкага матэрыялу. *С. аўтапагрузчыка.* || *прым.* **скрабкóвы**, -ая, -ае (да 2 знач.). *С. транспарцёр.*

**СКРАБЯНУ́ЦЬ** *гл.* скрэбці.

**СКРÁДВАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* Рабіцца менш выразным, непрыкметным. *Пры цьмяным святле скрадваюцца недахопы рамонту.*

**СКРÁДВАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак., што.* Рабіць менш выразным, непрыкметным. *Касцюм скрадвае недахопы фігуры.*

**СКРАЗНЫ́**, -áя, -óе. **1.** Які праходзіць наскрозь. *Скразная рана.* **2.** Які перамяшчаецца прама ад аднаго пункта да другога, без перасадак і перагрузак. *С. цягнік.* **3.** Які распаўсюджваецца на ўсе моманты вытворчай дзейнасці, на ўвесь прадмет. *Скразная загартоўка дэталей.* **4.** Рэдкі, ажурны; праз які праходзіць святло. *Скразныя фіранкі.* **5.** Пра вецер, што дзьме праз адтуліны, якія знаходзяцца насупраць адна адной. *С. вецер.*

**СКРАЗНЯ́К**, -ý, *мн.* -í, -óў, *м.* Вельмі моцная цяга паветра праз скразныя адтуліны, праёмы і пад. *С. шкодны для здароўя.* || *прым.* **скразнякóвы**, -ая, -ае.

**СКРАНУ́ЦЦА**, -нýся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -нýцца; -ні́ся; *зак.* Зрушыцца з месца. *Цягнік скрануўся з месца.* || *незак.* **скранáцца**, -áюся, -áешся, -áецца. || *наз.* **скранáнне**, -я, *н.*

**СКРАНУ́ЦЬ**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ні́; -нýты; *зак., каго-што.* Зрушыць з месца. *С. шафу.* || *незак.* **скранáць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **скранáнне**, -я, *н.*

**СКРАПІ́ЦЬ**, скраплю́, скрэ́піш, скрэ́піць; скрэ́плены; *зак., што.* Выклікаць запор. *Пражаным бобам скрапіла* (безас.) *жывот.* || *незак.* **скрапля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. || *наз.* **скраплéнне**, -я, *н.*

**СКРАПЛЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для скраплення жывата. *С. сродак.*

**СКРÁСЦІ**, скрáду, скрáдзеш, скрáдзе; скрáдзены; *зак., каго-што.* Цішком забраць для сябе што-н. чужое. *Тваіх здабыткаў злодзею не с.*

**СКРОЗЬ**, *прысл.* і *прыназ.* **1.** *прысл.* Усюды. *С. лёг снег.* **2.** *прысл.* Заўсёды, увесь час (разм.). *Я сябе с. сам правяраю.* **3.** *прыназ. з В.* Цераз што-н. *С. шчыліны дзвярэй прабівалася святло.* **4.** *прыназ. з В.* Ужыв. пры абазначэнні стану, дзеяння і пад., якое змяняецца, суправаджаецца іншым дзеяннем, станам і пад. *Шаптаць с. слёзы.*

**СКРÓІЦЬ**, скрóю, скрóіш, скрóіць; скрóены; *зак., што.* **1.** *гл.* кроіць. **2.** Кроячы, зрасходаваць што-н. *С. увесь паркаль.* || *незак.* **скрóйваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.).

**СКРÓМНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *сціплы.* || *наз.* **скрóмнасць**, -і, *ж.*

**СКРОНЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Бакавая частка чэрапа ад вуха да лобнай косці. || *прым.* **скрóневы**, -ая, -ае.

**СКРУПУЛЁЗНЫ**, -ая, -ае. Дакладны да самых дробязей, надзвычайна дакладны. *С. аналіз. Скрупулёзна* (прысл.) *даследаваць з'яву.* || *наз.* **скрупулёзнасць**, -і, *ж.*

**СКРУТ.** У выразе: **(кідацца) на скрут галавы** (разм.) — не думаючы, безразважліва. *Кінуцца ў кусты на с. галавы.*

**СКРУ́ТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Прадмет, скручаны трубкай або звіты кольцам. *С. палатна. С. дроту.* **2.** Прадмет або некалькі прадметаў, загорнутых у пакунак. *На машыну грузілі скруткі дываноў.*

**СКРУ́ХА**, -і, *ДМ* скрýсе, *ж.* Туга, маркота, жаль, шкадаванне. *Радасць прыемней за скруху.*

**СКРУЦІ́ЦЦА**, скручýся, скрýцішся, скрýціцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Туга звіцца, скачацца трубкай, загнуцца па краях. *Вяроўка дрэнна скруцілася. Лісце на яблыньцы скруцілася ад спякоты.* **2.** Сагнуцца, скурчыцца, кладучыся ці лежачы. *Скруціўся абаранкам і заснуў.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сашрубавацца, сапсавацца пры частым адкручванні і закручванні. *Кран скруціўся. Гайка скруцілася.* **4.** Знікнуць (разм., неадабр.). *Сяргей некуды скруціўся з дому.* || *незак.* **скру́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1—3 знач.).

**СКРУЦІ́ЦЬ**, скручý, скрýціш, скрýціць; скрýчаны; *зак.* **1.** *гл.* круціць. **2.** *што.* Навіць на што-н. *С. дрот. С. вуду.* **3.** *перан., каго (што).* Перамагчы, скарыць, узяць верх над кім-н. *С. ворага.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан., каго (што).* Адолець, авалодаць (пра хваробу). *Дзядулю скруціў рэматус. На тым тыдні так скруціла* (безас.)*, што не магла паварнуцца.* **5.** *перан., што.* Не вярнуць доўг, не аддаць належнае; не выканаць абяцанага. *С. пазычаныя грошы. Узяла кош і скруціла, не вярнула. С. вяселле.* **6.** *што.* Зняць што-н., круцячы. *С. гайку.* **7.** *што.* Доўга або неасцярожна круцячы, прывесці ў непрыгоднасць. *Так можна кран с.!* **8.** *перан., што.* Сапсаваць (жыццё, лёс і пад.) каму-н. *Ты мне жыццё скруціў.* || *незак.* **скру́чваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **скру́чванне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**СКРЫ́ВА**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *скоса.*

**СКРЫВÁВІЦЦА**, -вáўлюся, -вáвішся, -вáвіцца; *зак.* Заліцца, запэцкацца кроўю. || *незак.* **скрывáўлівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СКРЫВÁВІЦЬ**, -вáўлю, -вáвіш, -вáвіць; -вáўлены; *зак., каго-што.* Збіць да крыві; запэцкаць кроўю. *С. ручнік. Скрываўленая вопратка.* || *незак.* **скрывáўліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКРЫВÁЦЬ** *гл.* скрыць.

**СКРЫВІ́ЦЦА** *гл.* крывіцца.

**СКРЫВІ́ЦЬ** *гл.* крывіць.

**СКРЫ́ГАТ**, -у, *М* -гаце, *м.* Рэзкі гук, які ўтвараецца пры моцным трэнні аднаго прадмета аб другі. *С. жалеза.*

**СКРЫГАТÁЦЬ**, -гачý, -гóчаш, -гóча; -гачы́; *незак.* Утвараць гукі скрыгату. *Дзверы скрыгочуць.* ◊ **Скрыгатаць зубамі** — выказваць незадавальненне, злосць. || *наз.* **скрыгатáнне**, -я, *н.*

**СКРЫ́ГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *скрыгатаць.* || *аднакр.* **скрыганýць**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ні́. || *наз.* **скры́ганне**, -я, *н.* (разм.).

**СКРЫЖАВÁННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* скрыжаваць. **2.** Месца, дзе скрыжоўваюцца дарогі, вуліцы. *С. шашэйных дарог.* **3.** Адзін з відаў моўнай канвергенцыі (сыходжання, прыпадобнівання моў; уст.). *С. моў.*

**СКРЫЖАВÁЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -жýецца; *зак.* **1.** *гл.* крыжавацца. **2.** Спалучыцца адзін з адным у выніку скрыжавання (пра расліны, жывёл). **3.** Зрабіць уплыў адзін на аднаго ў выніку скрыжавання (пра мовы, гаворкі; уст.). || *незак.* **скрыжóўвацца**, -аецца. || *наз.* **скрыжавáнне**, -я, *н.*

**СКРЫЖАВÁЦЬ**, -жýю, -жýеш, -жýе; -жýй; -жавáны; *зак.* **1.** *што.* Скласці што-н. крыж-накрыж. *С. рукі.* **2.** *каго-што.* Зрабіць спарванне розных відаў (жывёл, раслін) для атрымання новай пароды, гатунку. ◊ **Скрыжаваць шпагі** — уступіць у бой, спрэчку. || *незак.* **скрыжóўваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **скрыжавáнне**, -я, *н.*

**СКРЫЖÁЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Дошка з напісаным на ёй свяшчэнным тэкстам. **2.** *перан.*, звычайна *мн.*, -ей. Пра тое, што захоўвае, куды занесены памятныя даты, падзеі, імёны і пад. *Падзеі засведчаны на скрыжалях гісторыі.*

**СКРЫЛЬ**, -я́, *мн.* -í, -ёў, *м.* Адрэзаны значны кавалак чаго-н. (пераважна пра сала, сыр, кавун і пад.). *Скрылі сала.* || *памянш.* **скры́лік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* *і* **скрылёк**, -лькá, *мн.* -лькí, -лькóў, *м.*

**СКРЫЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *незак., што* (разм.). Нарэзваць скрылікамі. *С. кавуны.*

**СКРЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Ёмістасць звычайна чатырохвугольнай формы для захоўвання, укладвання чаго-н. *С. для цвікоў. Паштовая с. Снарадная с.* ‖ *памянш.* **скры́начка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, чак, *ж.* ‖ *прым.* **скры́начны**, -ая, -ае.

**СКРЫ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -ры́нь, *ж.* **1.** Драўляная чатыровугольная пасудзіна для ссыпання ці складвання чаго-н. *С. для ячменю.* **2.** Прадаўгаватая пасудзіна для перавозкі і трымання сельскагаспадарчых прадуктаў (бульбы, морквы і пад.). *Ссыпаць бульбу ў скрыню.* **3.** Тое, што і *куфар.* ‖ *прым.* **скры́неви**, -ая, -ае. *Скрыневае века.*

**СКРЫП**, -у, *м.* Рэзкі гук, што ўзнікае пры трэнні. *С. дзвярэй.* ◊ **За адным скрыпам** (разм.) — за адным заходам. **Са скрыпам** (разм.) — нехаця ці з цяжкасцю (рабіць што-н.). *Са скрыпам атрымаў дазвол на паездку.*

**СКРЫ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *скрыпець. С. дзвярыма.* ‖ *наз.* **скры́панне**, -я, *н.*

**СКРЫПА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Музыкант, які іграе на скрыпцы. ‖ *ж.* **скрыпа́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**СКРЫ́ПЕНЬ**, -ю, *м.* Высокая травяністая расліна з мяцёлкай пурпурна-ружовых або белых кветак і пушыстым насеннем. ‖ *прым.* **скрыпнёвы**, -ая, -ае. *Сямейства скрыпнёвых* (наз.).

**СКРЫПЕ́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -пі́; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Утвараць скрыпучыя гукі. *Завесы ў дзвярах скрыпяць. Скрыпіць снег пад нагамі.* **2.** Гаварыць скрыпучым голасам. *Не гаворыць, а скрыпіць.* **3.** *перан.* Жыць абы-як, з цяжкасцю падтрымліваючы свае сілы (разм.). *Скрыплю ячшэ трошкі.* ‖ *аднакр.* **скры́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1 знач.). ‖ *наз.* **скрыпе́нне**, -я, *н.*

**СКРЫ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* Чатырохструнны смычковы музычны інструмент высокага тэмбру. *Сола на скрыпцы.* ◊ **Першая скрыпка** — 1) вядучая скрыпка ў аркестры; 2) пра чалавека, якому належыць галоўная, уплывовая роля ў чым-н. ‖ *прым.* **скрыпі́чны**, -ая, -ае. *С. клас.* ○ **Скрыпічны ключ** (спец.) — знак на нотным радку, які ўстанаўлівае вышыню і назву высокага гуку.

**СКРЫПУ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які скрыпіць, вылучаецца скрыпам. *С. снег. Скрыпучае акно.* **2.** *перан.* Рэзкі, падобны на скрып. *С. голас* ‖ *наз.* **скрыпу́часць**, -і, *ж.*

**СКРЫ́ТНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Быць скрытным, паводзіць сябе скрытна.

**СКРЫ́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які пазбягае адкрытасці, не расказвае іншым пра сябе. *С. хлопец. Дзейнічаць скрытна* (прысл.). **2.** Скрытны ад чыйго-н. вока; таемны. *С. вобраз жыцця.* ‖ *ж.* **скры́тнасць**, -і, *ж.*

**СКРЫ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Нябачны, замаскіраваны, тайны. *Скрытыя дзеянні. Скрытыя замыслы працўніка.* **2.** Без характэрных знешніх прыкмет. *Скрытае цячэнне хваробы. Скрытая ўсмешка.* **3.** Які ўласцівы каму-, чаму-н., але яшчэ не праявіўся, знешне не прыкметны. *Скрытыя магчымасці тэхнікі.* ‖ *наз.* **скры́тасць**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**СКРЫЎДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго* (разм.). Тое, што і *пакрыўдзіць.*

**СКРЫЎЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* Тое, што і *крывіцца.*

**СКРЫЎЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* Тое, што і *крывіць.*

**СКРЫЦЬ**, скры́ю, скры́еш, скры́е; скры́ты; *зак., каго-што.* Утаіць што-н. ад каго-н. *С. сваю радасць.* ‖ *незак.* **скрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СКРЫЧА́ЦЦА**, -чу́ся, -чы́шся, -чы́цца; -чы́мся, -чыце́ся, -ча́цца; -чы́ся; *зак.* Знемагчы ад крыку. *Унук скрычаўся.*

**СКРЫША́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *сакрушальны.* ‖ *наз.* **скрыша́льнасць**, -і, *ж.*

**СКРЫШЫ́ЦЦА** *гл.* крышыцца.

**СКРЫШЫ́ЦЬ** *гл.* крышыць.

**СКРЭ́БАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Тое, што і *скрабаць.*

**СКРЭ́БЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Тое, што і *скрабніца.* **2.** Лапатка для саскрэбвання чаго-н. *Зламаць с.* ‖ *прым.* **скрэ́блавы**, -ая, -ае.

**СКРЭ́БЦІ**, скрабу́, скрабе́ш, скрабе́; скрабём, скрабяце́, скрабу́ць; скроб, скрэ́бла; скрабі́; скрэ́бены; *незак.* **1.** *каго-што* і *без дап.* Драпаць чым-н. вострым на паверхні. *С. падлогу. Мыш скрабе за шпалерамі.* **2.** *каго-што.* Счышчаючы, дзерці чым-н. вострым, цвёрдым. *С. скавараду пяском. С. снег.* **3.** *што.* Чысціць, знімаць верхні слой (пра маладую гародніну, рыбу і пад.). *С. моркву. С. рыбу.* **4.** звычайна *безас., перан.* Хваляваць, трывожыць. *Цэлы дзень скрабе на душы.* ‖ *аднакр.* **скрабяну́ць**, -бяну́, -бяне́ш, -бяне́; -бянём, -беняце́, -бяну́ць; -бяні́. ‖ *наз.* **скрабе́нне**, -я, *н.* (да 2 і 3 знач.).

**СКРЭ́БЦІСЯ**, скрабу́ся, скрабе́шся, скрабе́цца; скрабёмся, скрабяце́ся, скрабу́цца; скро́бся, скрэ́блася; скрабі́ся; *незак.* Скрабучы, рабіць шум (*гл.* скрэбці ў 1 знач.). *У запечку скрабецца мыш.*

**СКРЭ́МЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). **1.** Пакрыць рознымі штрыхамі, неакуратна спісаць. *С. чысты аркуш паперы.* **2.** Зрабіць многа правак, закрэсліць у многіх месцах. *Рэдактар скрэмзаў артыкул.*

**СКРЭ́ПЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Землярыйна-транспартная машына для капання, перавозкі і ўкладкі грунту. ‖ *прым.* **скрэ́перны**, -ая, -ае.

**СКРЭПЕРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочы, які працуе на скрэперы.

**СКРЭ́СЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што* (разм.). **1.** Пакрыць рознымі штрыхамі, закрэсліць у многіх месцах. *С. увесь сшытак.* **2.** Унесці многа паправак. *С. артыкул.* ‖ *незак.* **скрэ́сліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СКУ́БЦІ**, скубу́, скубе́ш, скубе́; скубём, скубяце́, скубу́ць; скубі́; *незак.* **1.** *што.* Цягнучы, выцягваючы, браць патроху. *С. салому ад стога.* **2.** *што.* Разрываць пальцамі што-н. на дробныя часткі. *С. пер'е.* **3.** *каго-што.* Вырываць, адрываць, выскубваць (пра траву, пер'е, пух і пад.). *Гусі скубуць траву. С. курыцу.* **4.** *каго-што.* Перабіраць пальцамі, тузаць. *Дзеці скубуць бацьку за паліто.* **5.** *перан., каго-што.* Патрабаваць чаго-н.; непакоіць. *Мяне скубуць з усіх бакоў.* ‖ *аднакр.* **скубану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; **скубну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць, -ні́ і **скубяну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ ‖ *наз.* **скубе́нне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.).

**СКУ́БЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., скубе́цца; *незак.* Пра магчымасць лёгка скубці (у 1—3 знач.). *Салома не скубецца. Сухое пер'е добра скубецца.*

**СКУГО́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак.* **1.** Пра сабаку: жаласна выць, падвываць. *Цэлую ноч скуголіў сабака.* **2.** *перан.* Скардзіцца, надакучліва прасіць што-н. (разм.). ‖ *наз.* **скуго́ленне**, -я, *н.*

**СКУДЛА́ЦІЦЦА** *гл.* кудлаціцца.

**СКУДЛА́ЦІЦЬ** *гл.* кудлаціць.

**СКУ́ЛА**[1], -ы, *мн.* -ы, скул, *м.* Выпуклая косць чэрапа ніжэй вачэй, над верхняй часткай сківіцы. ‖ *прым.* **скулавы́**, -а́я, -о́е (спец.).

**СКУ́ЛА**[2], -ы, *мн.* -ы, скул, *ж.* Гнойнае мясцовае запаленне скуры, тканкі; нарыў. ‖ *прым.* **ску́лаваты**, -ая, -ае.

**СКУЛА́СТЫ**, -ая, -ае. З вялікімі пукатымі скуламі[1]. *С. твар.* ‖ *наз.* **скула́стасць**, -і, *ж.*

**СКУЛІ́ЦЦА**, скулю́ся, ску́лішся, ску́ліцца; *зак.* (разм.). Зваліцца адкуль-н. ‖ *незак.* **ску́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СКУЛІ́ЦЬ**, скулю́, ску́ліш, ску́ліць; ску́лены; *зак., каго-што* (разм.). Скінуць з чаго-н. *С. з воза.* ‖ *незак.* **ску́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ску́льванне**, -я, *н.*

**СКУЛЬ**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *адкуль.*

**СКУ́ЛЬПТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак, які працуе ў галіне скульптуры. ‖ *прым.* **ску́льптарскі**, -ая, -ае.

**СКУЛЬПТУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ту́р, *ж.* **1.** Майстэрства стварэння аб'ёмных мастацкіх твораў шляхам разьбы, высякання, лепкі або адліўкі, коўкі, чаканкі. **2.** Твор такога мастацтва, а таксама сукупнасць такіх твораў. *Скульптуры, выкананыя на высокім мастацкім узроўні.* ‖ *прым.* **скульпту́рны**, -ая, -ае. *С. партрэт.*

**СКУ́МБРЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Невялікая марская прамысловая рыба. ‖ *прым.* **ску́мбрыевы**, -ая, -ае.

**СКУНС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Драпежны звярок сямейства куніцавых з каштоўным футрам, які выдзяляе рэзкі смярдзючы пах, водзіцца ў Паўночнай і Цэнтральнай Амерыцы, а таксама футра гэтага звярка. ‖ *прым.* **ску́нсавы**, -ая, -ае.

**СКУ́ПАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* скупы. **2.** Празмерная беражлівасць, нежаданне траціць грошы.

**СКУПЕ́НДА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -дзе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -аў. Тое, што і *скупянда.*

**СКУПЕ́ЧА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -ы, -пе́ч (разм., неадабр.). Скупы чалавек.

**СКУПІ́ЦЦА**, -плю́ся, -пі́шся, -пі́цца; -пі́мся, -піцёся, -пя́цца; *незак., на што, з інф.* і *без дап.* Неахвотна расходаваць, аддаваць; быць празмерна ашчадным. *С. на пачастунак. Не с. на добрыя словы* (перан.: лёгка гаварыць каму-н. прыемнае). ‖ *зак.* **паскупі́цца**, -плю́ся, -пі́шся, -пі́цца; -пі́мся, -піцёся, -пя́цца.

**СКУ́ПІЦЬ**, скуплю, ску́піш, ску́піць; ску́плены; *зак., каго-што* (разм.). Сабраць у адно месца, стоўпіць. *С. кароў.*

**СКУПІ́ЦЬ**, скуплю́, ску́піш, ску́піць; ску́плены; *зак., каго-што.* Купіць (усё, многае). *С. многа кніг.* ‖ *незак.* **скупля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **ску́пліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ску́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* ‖ *прым.* **ску́пачны**, -ая, -ае (спец.) *і* **скупны́**, -а́я, -о́е (спец.).

**СКУ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* **1.** *гл.* скупіць. **2.** Камісійны магазін, дзе скупліваюць рэчы (разм.). *Здаць паліто ў скупку.*

**СКУ́ПШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто скупляе што-н. для перапродажу або іншых мэт. ‖ *ж.* **ску́пшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **ску́пшчыцкі**, -ая, -ае.

**СКУПЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Празмерна беражлівы, да прагнасці ашчадны. *Скупая суседка. Скупа* (прысл.) *траціць грошы.* **2.** Які сведчыць аб празмернай беражлівасці, прагнасці. *С. падарунак.* **3.** Які не дасягае крыху якой-н. меры, вагі і пад., няпоўны (разм.). *С. беркавец сена. С. кілаграм цукру. Скупая вячэра* (бедная, мізэрная). **4.** *перан.* Недастатковы, слабы ў сваім праяўленні; умераны, стрыманы. *С. дождждык. Скупыя словы пахвалы. С. на словы чалавек* (які маўчыць). ‖ *наз.* **ску́пасць**, -і, *ж.*

**СКУПЯНДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *Т* -о́й (-о́ю), *мн.* скупе́нды *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) скупянды́, скупе́ндаў, *м.* і *ж.* (разм., неадабр.). Скупы чалавек; скнара.

**СКУР...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да скуры (у 2 знач.), напр., *скурсурагат;* 2) скураны, гарбарны, напр.: *скурсыравіна, скуртавары.*

**СКУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Верхняе покрыва цела чалавека і жывёлы. *С. на руках гладкая.* **2.** Выробленая шкура жывёлы. *Паліто з натуральнай скуры.* **3.** *перан.* (звычайна са словамі «своя», «уласная» і пад.). Пра жыццё, існаванне, дабрабыт (разм.). *Своя с. даражэй.* ◊ **Вылазіць са скуры** — старацца з усіх сіл. **Скура ды косці** — пра вельмі худога чалавека. **Скура свярбіць** — пра няўрымслівага, неспакойнага чалавека, які быццам просіцца на пакаранне. ‖ *памянш.* **ску́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **ску́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Скурныя захворванні.*

**СКУРАДЗЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *шкурадзёр.*

**СКУРАЛУ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). **1.** Той, хто знімае скуры з забітых жывёл. **2.** *перан.* Бязлітасны, жорсткі чалавек.

**СКУРАМІ́Т**, -у, *М* -міце, *м.* Штучная скура, якая ідзе на падэшвы. ‖ *прым.* **скурамі́тавы**, -ая, -ае.

**СКУРА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Скураная куртка або кароткае скураное паліто.

**СКУРАНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які мае адносіны да вырабу скур і да рэчаў са скуры. *С. завод. Скураная сыравіна.* **2.** Зроблены, пашыты са скуры, абабіты скурай (у 2 знач.). *Скураныя боты. С. кашалёк. Скураное крэсла.*

**СКУРА́Т**, -а́, *М* -раце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Кавалак, абрэзак скуры. ◊ **Круці́цца як скурат на агні** (разм.) — выкручвацца, каб давесці сваю невінаватасць у чым-н.

**СКУ́РВАЦЦА** *гл.* скурыцца.

**СКУ́РВАЦЬ** *гл.* скурыць.

**СКУ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** *гл.* скура. **2.** Невялікая выробленая шкура жывёлы (для пашыву шапак, каўняроў і пад.). **3.** Верхняе покрыва, абалонка пладоў. *С. памідора.*

**СКУ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто займаецца вырабам скур. **2.** Урач па хваробах скуры (разм.).

**СКУ́РНЫ** *гл.* скура.

**СКУ́РЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *зак.* **1.** Сціснуцца ўсім целам, скруціцца. *С. ад холаду.* **2.** Падагнуцца, сагнуцца. *Пальцы на нагах скурчыліся.* **3.** Зрабіцца няроўным; скрывіцца, выгнуцца. *Лісце ад марозу скурчылася.* ‖ *незак.* **ску́рчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СКУ́РЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *што.* Сагнуць, падагнуць. *С. ногі.* **2.** *каго-што.* Звесці курчам. *Хвароба скурчыла пальцы. Раптам мяне скурчыла* (безас.). ‖ *незак.* **ску́рчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ску́рчванне**, -я, *н.*

**СКУ́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Які мае скуру або з паверхняй, падобнай на скуру. *Скурыстае лісце. Скурыстая перапонка. Скурыстая чарапаха* (з целам, пакрытым скурай).

**СКУРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., ску́рыцца; *зак.* Зрасходавацца пры курэнні; дакурыцца. *Папяроса скурылася.* ‖ *незак.* **ску́рвацца**, -аецца.

**СКУРЫ́ЦЬ**, скуру́, ску́рыш, ску́рыць; ску́раны; *зак., што.* Курачы, зрасходаваць; дакурыць. *С. цыгарэту.* ‖ *незак.* **ску́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ску́рванне**, -я, *н.*

**СКУСА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* Моцна пакусаць, укусіць у многіх месцах. *Мяне скусалі камары.* ‖ *незак.* **ску́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ску́сванне**, -я, *н.*

**СКУСІ́ЦЬ**, скушу́, ску́сіш, ску́сіць; ску́шаны; *зак., што* (разм.). Адкусіць зверху частку чаго-н. *Рыба скусіла чарвяка.* ‖ *незак.* **ску́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ску́сванне**, -я, *н.*

**СКУ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Аднамесны матацыкл. *Новыя мадэлі мапедаў і скутараў карыстаюцца вялікім попытам.* **2.** Аднамесная спартыўная лодка з падвесным матарам. ‖ *прым.* **ску́тэрны**, -ая, -ае.

**СКУФ'Я́**, -і́, -е́й, *ж.* Востраканечная мяккая шапка з чорнага або фіялетавага аксаміту ў праваслаўнага духавенства. ‖ *памянш.* **скуфе́йка**, -і, *ДМ* -фе́йцы, *мн.* -і, -фе́ек, *ж.*

**СКУЦЬ**, скую́, скуе́ш, скуе́; скуём, скуяце́, скую́ць; ску́й; ску́ты; *зак., каго-што.* Тое, што і *скаваць.*

**СКУ́ЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -чыцца; *зак.* Сабрацца ў кучу, у адно месца. *Воблакі скучыліся. Вучні скучыліся ля дзвярэй класа.* ‖ *незак.* **ску́чвацца**, -аецца.

**СКУ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што.* Сабраць у кучу, у адно месца. *С. кароў на сенажаці.* ‖ *незак.* **ску́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СЛАБА...** *і* **СЛАБА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) слабы (у 1 знач.), напр.: *слабаактыўны, слабавыражаны, слабадакладны* (спец.); 2) слабы (у 2 знач.), напр., *слабабачанне* (спец.); 3) слабы (у 6 знач.), напр.: *слабаалкагольны, слабасалёны;* 4) з малой колькасцю чаго-н., напр.: *слабаваданосны, слабагліністы, слабажалезісты;* 5) злёгку ці недастаткова, напр.: *слаба-жоўты, слабазаселены, слабапранікальны, слабаразвіты, слабарастваральны;* 6) малы, напр., *слабарослы* (пра расліны: малой вышыні; спец.).

**СЛАБАВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Са слабай воляй. *С. чалавек.* ‖ *наз.* **слабаво́льнасць**, -і, *ж.*

**СЛАБАДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *мн.* слабо́ды *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) слабады́, -бо́д, *ж.* **1.** *гіст.* Паселішча або гарадскі квартал у Расіі, Беларусі і Украіне ў 11—18 стст., жыхары якога не былі прыгоннымі або часова вызваляліся ад падаткаў. **2.** Вялікае гандлёвае ці прамысловае сяло; адасобленая частка вялікага сяла. **3.** Пасёлак ля горада; прыгарад (уст.). ‖ *памянш.* **слабо́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак. ‖ *прым.* **слабадскі́**, -а́я, -о́е.

**СЛАБАДЖА́НІН**, -а, *мн.* -джа́не, -джа́н, *м.* Жыхар слабады. ‖ *ж.* **слабаджа́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**СЛАБА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм., неадабр.). Слабы ў якіх-небудзь адносінах чалавек.

**СЛАБАНЕРВО́ВЫ**, -ая, -ае. Са слабымі нервамі; занадта чуллівы. ‖ *наз.* **слабанерво́васць**, -і, *ж.*

**СЛАБАСІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Са слабым здароўем, недастаткова дужы. *С. чалавек.* **2.** З невялікай магутнасцю (спец.). *С. матор.* ‖ *наз.* **слабасі́лле**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**СЛА́БАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* слабы. **2.** Недахоп фізічных сіл; недамаганне. *Ад слабасці*

*цяжка стаяць на нагах.* **3.** Недастатковая цвёрдасць і паслядоўнасць у правядзенні чаго-н. *Тут ён праявіў с.* **4.** *перан.* Прывычка, схільнасць, ад якой няма жадання адмовіцца (разм.). *С. да азартных гульняў. Оперны тэатр — мая с.*

**СЛАБАХАРА́КТАРНЫ**, -ая, -ае. Са слабым характарам, бязвольны. *С. чалавек.* ‖ *наз.* **слабахара́ктарнасць**, -і, *ж.*

**СЛАБЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Рабіцца слабым ці больш слабым (у 1—4, 6 і 7 знач.). *Вецер слабее. Хворы прыкметна слабее.* ‖ *зак.* **аслабе́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е *і* **саслабе́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е. ‖ *наз.* **аслабле́нне**, -я, *н.*

**СЛАБІНА́**, -ы́, *мн.* слабіны, -бін, *ж.* **1.** Слабае месца ў чым-н. (менш моцнае, слабей нацягнутае і пад.; разм. і спец.). *С. фала* (каната, троса). **2.** *перан.* Слабасць, недахоп (разм.). *С. ў характары.*

**СЛАБІ́ЦЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, ад якога слабіць. *Слабіцельнае лякарства.*

**СЛА́БІЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -біць; *незак.* **1.** *безас., каго-што.* Пра частае апаражненне кішэчніка. *Дзіця ўвесь час с.* **2.** Выклікаць паскоранае дзеянне кішэчніка ў каго-н. *Касторка добра с.* ‖ *зак.* **прасла́біць**, -біць (у 1 знач.).

**СЛА́БКІ**, -ая, -ае. **1.** Які няшчыльна зацягнуты (пра пояс, рэмень). *С. пояс. Слабкая пятля.* **2.** Нямоцна завязаны, слаба прыкручаны. *Воз з сенам уціснуты слабка* (прысл.). *С. трос.* ‖ *наз.* **сла́бкасць**, -і, *ж.*

**СЛА́БНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; слаб, -бла; -ні; *незак.* Тое, што і *слабець. Без сну чалавек слабне.* ‖ *зак.* **асла́бнуць**, -ну, -неш, -не; асла́б, -бла; -ні.

**СЛАБО́ДКА** *гл.* слабада.

**СЛА́БЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае малую сілу, магутнасць. *С. чалавек. С. рухавік.* **2.** Нездаровы, хваравіты. *Слабая бабуля. Слабыя нервы.* **3.** Які не вызначаецца моцным характарам; нястойкі. *Слабая натура. Слабая воля.* **4.** Нязначны, малы. *Слабая падтрымка. С. ўдзел.* **5.** Дрэнны, няўмела падрыхтаваны, выкананы недастаткова ўмела і пад. *С. вучань. С. раман. Сын с. ў матэматыцы.* **6.** Ненасычаны, нямоцны. *С. раствор солі. Слабая гарэлка.* **7.** Нямоцна нацягнуты, свабодны. *Лейцы слаба* (прысл.) *нацягнуты.* ◊ **Слабае месца** або **слабы бок** *каго-чаго* (разм.) — недахоп чый-н. або чаго-н. ‖ *наз.* **сла́басць**, -і, *ж.*

**СЛА́ВА**, -ы, *ж.* **1.** Ганаровая вядомасць, усеагульнае прызнанне чыіх-н. заслуг, таленту і пад. *С. папулярнага артыста. Паэтычная с. Ордэн Славы.* **2.** Чутка, размовы (разм.). *Добрая с. ідзе пра наш горад.* **3.** Агульнапрынятая думка аб кім-, чым-н., рэпутацыя. *Добрая с. пра магазін.* ◊ **На славу** (разм.) — вельмі добра. **Толькі слава, што...** (разм.) — толькі лічыцца, гавораць так, а на справе зусім наадварот.

**СЛАВА́КІ**, -аў, *адз.* -ва́к, -а, *м.* Заходнеславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Славакіі. ‖ *ж.* **слава́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **слава́цкі**, -ая, -ае.

**СЛАВАЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які вызначаецца славалюбствам, прагай да славы. *С. характар.*

**СЛАВАЛЮ́БСТВА**, -а, *н.* Любоў да славы, прагнасць славы.

**СЛАВЕ́НЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Паўднёваславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Славеніі. ‖ *ж.* **славе́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **славе́нскі**, -ая, -ае.

**СЛАВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне славістыкі, славяназнаўства. ‖ *ж.* **славі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **славі́сцкі**, -ая, -ае.

**СЛАВІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Тое, што і *славяназнаўства.* ‖ *прым.* **славісты́чны**, -ая, -ае.

**СЛА́ВІЦЦА**, сла́ўлюся, сла́вішся, сла́віцца; *незак.* **1.** *чым* або са словам «як». Мець шырокую вядомасць у якіх-н. адносінах. *Горад славіцца сваімі паркамі. Ён славіўся як аматар рыбалкі.* **2.** Праслаўляцца, ушаноўвацца. *У песнях славіцца наш беларускі край.*

**СЛА́ВІЦЬ**, сла́ўлю, сла́віш, сла́віць; *незак., каго-што.* Праслаўляць каго-, што-н. *Працай сваёй славім Айчыну. Хлебароба поле славіць.*

**СЛАВУ́ТАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* славуты. **2.** Шырокая папулярнасць (пра месца, прадмет, выдатныя чым-н.). *Брэсцкая крэпасць — с. нашага народа.* **3.** Вядомы, праслаўлены чалавек.

**СЛАВУ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Пра якога ўсе ведаюць; агульнавядомы, праслаўлены. *С. раман. Славутая опера.* **2.** Які набыў славу або годны яе; слаўны. *С. год перамогі ў вайне.* **3.** Пра чалавека, які стаў знакамітым, карыстаецца вялікай папулярнасцю. *С. вучоны.* ‖ *наз.* **славу́тасць**, -і, *ж.*

**СЛАВЯНАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Сукупнасць навуковых дысцыплін аб славянах, іх гісторыі, мовах, фальклоры, літаратурах, матэрыяльнай культуры. ‖ *прым.* **славяназна́ўчы**, -ая, -ае.

**СЛАВЯНАФІ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік славянафільства. ‖ *ж.* **славянафі́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **славянафі́льскі**, -ая, -ае.

**СЛАВЯНАФІ́ЛЬСТВА**, -а, *н.* У Расіі ў сярэдзіне 19 ст.: ідэйна-палітычная плынь, прадстаўнікі якой супрацьпастаўлялі гістарычны шлях развіцця Расіі развіццю краін Заходняй Еўропы і ідэалізавалі патрыярхальныя рысы рускага побыту і культуры. ‖ *прым.* **славянафі́льскі**, -ая, -ае.

**СЛАВЯ́НЕ**, -вя́н, *адз.* -вянін, -а, *м.* Адна з самых вялікіх у Еўропе груп роднасных па мове і культуры народаў (беларусы, палякі, балгары і інш.), якія ўтвараюць тры галіны: усходне-, заходне- і паўднёваславянскую. ‖ *ж.* **славя́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **славя́нскі**, -ая, -ае. *Славянскія мовы. С. эпас.*

**СЛАВЯНІ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Слова або моўны зварот, запазычаныя неславянскай мовай з якой-н. славянскай мовы. **2.** Слова або зварот, якія ўвайшлі ў некаторыя славянскія мовы з царкоўнаславянскай.

**СЛАВЯ́НСТВА**, -а, *н., зб.* Славяне.

**СЛАІ́СТЫ**, -ая, -ае. Які складаецца са слаёў. *Слаістыя воблакі.* ‖ *наз.* **слаі́стасць**, -і, *ж.*

**СЛАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., слаі́цца; *незак.* Падзяляцца на слаі. *Слюда добра слаіцца.*

**СЛАІ́ЦЬ**, слаю́, слаі́ш, слаі́ць; слаі́м, слаіце́, сла́яць; *незак., што.* Рабіць слаі з чаго-н. *С. цеста.* ‖ *наз.* **слае́нне**, -я, *н. і* (разм.) **сло́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.*

**СЛАЙД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *дыяпазітыў.* **2.** Рухомае сядзенне ў гоначнай лодцы (спец.). ‖ *прым.* **сла́йдавы**, -ая, -ае. *Слайдавая фатаграфія.*

**СЛА́ЛАМ**, -а, *м.* Від спорту — скарасны спуск на лыжах з гары па зададзеным складаным маршруце. *Займацца слаламам.* ‖ *прым.* **сла́ламны**, -ая, -ае. *Слаламная дыстанцыя.*

**СЛАЛАМІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен — спецыяліст па слаламе. ‖ *ж.* **слаламі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**СЛА́НЕЦ**, -нцу, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Горная парода, якая мае слаістую будову і можа расслойвацца на тонкія пласціны, слаі. *Гаручыя сланцы. Гліністы с.* ‖ *прым.* **сла́нцавы**, -ая, -ае.

**СЛАНЕ́ЧНІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Аднагадовая травяністая расліна з буйным жоўтым суквеццем на высокім сцябле, якая вырошчваецца ў асноўным дзеля атрымання алею з насення, а таксама насенне гэтай расліны. ‖ *прым.* **сланечнікавы**, -ая, -ае.

**СЛА́НІК**, -у, *м., зб.* Хмызняковае дрэва або нізкарослыя кусты, якія сцелюцца па зямлі і растуць у горнай мясцовасці і ў тундры. *Кедравы с.*

**СЛАНІ́ХА**, -і, *ДМ* -ні́се, *мн.* -і, -ні́х, *ж.* Самка слана.

**СЛА́ННЕ** *гл.* слаць[2].

**СЛАНО́ВАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Захворванне, якое праяўляецца ў моцным павелічэнні аб'ёму асобных частак цела (звычайна ног).

**СЛАНО́ВЫ** *гл.* слон.

**СЛА́НЦАВЫ** *гл.* сланец.

**СЛАНЯНЯ́** *і* **СЛАНЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня слана.

**СЛАНЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* **1.** Хадзіць туды-сюды без мэты, без справы (разм., неадабр.). *С. па задворках.* **2.** Злёгку хістацца. *С. ад стомы.*

**СЛАТА́** *гл.* слота.

**СЛА́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які набыў славу або варты яе; славуты. *Вера Харужая — слаўная дачка беларускага народа.* **2.** Харошы, прыемны, добры, які выклікае прыхільнасць, дае радасць. *Слаўнае дзіця. С. дзянёк. Слаўную пабудавалі хату.*

**СЛА́ЦЦА**, сцялю́ся, сцэ́лешся, сцэ́лецца; сцялі́ся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Ляжаць, распаўсюджвацца па паверхні або над паверхняй чаго-н. *Сцелецца ў лузе густы туман. Травы сцелюцца мяккім дываном.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Расці, распасціраючы галіны па паверхні чаго-н. *Галіны вярбы слаліся амаль па самай зямлі.* **3.** Слаць сабе пасцель. *Пара слацца і спаць.* ◊ **Лістам слацца (слаць)** (разм.) — выдыгаць перад кім-н., падлізвацца да каго-н., лісліва дагаджаць каму-н. з карыслівай мэтай. ‖ *зак.* **пасла́цца**, -сцялю́ся, -сцэ́лешся, -сцэ́лецца; -сцялі́ся.

**СЛАЦЬ**[1], шлю, шлеш, шле; шлём, шляце́, шлюць; слаў, сла́ла; шлі; сла́ны; *незак.* Тое, што і *пасылаць* (у 1—4 знач.).

**СЛАЦЬ**[2], сцялю́, сцэ́леш, сцэ́ле; сцялі́; сла́ны; *незак., што* **1.** Укладваючы, раскладваць па паверхні. *С. пасцілку на канапу. С. пасцель* (рыхтуючы да сну). *Мякка сцеле, ды мулка спаць* (прыказка пра таго, хто добразычлівы толькі на словах). *С. каноплі.* **2.** Рабіць, укладваючы шчыльна састаўныя часткі чаго-н. (дошкі, пліткі, брусы і пад.). *С. падлогу. С. паркет.* ‖ *зак.* **пасла́ць**, -сцялю́, -сцэ́леш, -сцэ́ле; пасцялі́; -сла́ны *і* **насла́ць**, -сцялю́, -сцэ́леш, -сцэ́ле; насцялі́; -сла́ны; *наз.* **насціла́нне**, -я, *н. і* **насці́л**, -у, *м.* ‖ *наз.* **сла́нне**, -я, *н.*

**СЛЕД**, -у, *М* слэ́дзе, *мн.* сляды́, слядо́ў, *м.* **1.** Адбітак чаго-н. (нагі, колаў і пад.) на якой-н. паверхні, знак ад дотыку. *Птушыныя сляды. Конскі с. Сляды кіпцюроў.* **2.** *перан., чаго.* Прыкмета, адметная рыса чаго-н. *Сляды пажару. Сляды злачынства.* ◊ **Без следу** — зусім бясследна знікнуць, згінуць і пад. **Замесці сляды** — знішчыць, утаіць тое, што можа быць доказам віны. **І следу не засталося** — пра поўнае знікненне, адсутнасць чаго-, каго-н. **Ісці па чыіх-н. слядах** — дзейнічаць, прытрымліваючыся чыйго-н. вучэння або беручы прыклад з каго-н. **Напасці на чый-н. след** — атрымаць звесткі, якія дапамагаюць выявіць, знайсці каго-, што-н. **Не след** — не варта. **Як след** — як мае быць, як трэба. ‖ *прым.* **следавы́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.; спец.). *Кантрольная следавая паласа* (на граніцы).

**СЛЕ́ДАМ**, *прысл.* Услед за кім-, чым-н., не адстаючы. *Ехаць с.* ◊ **Следам за дзедам** (разм.) — па прыкладзе старэйшых.

**СЛЕДАПЫ́Т**, -а, *М* -пы́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, хто добра распазнае сляды, высочвае каго-н. па слядах. *Паляўнічы-с. Разведчык-с.* **2.** Той, хто шукае сляды былых гістарычных падзей. *Юныя следапыты накіраваліся ў паход па месцах баявой славы.* ‖ *прым.* **следапы́цкі**, -ая, -ае.

**СЛЕ́ДСТВА**, -а, *н.* Высвятленне органамі юстыцыі абставін, звязаных са злачынствам. *Весці с.* ‖ *прым.* **сле́дчы**, -ая, -ае. *Следчыя органы.*

**СЛЕ́ДЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* **1.** *гл.* следства. **2.** Службовая асоба, якая вядзе следства. ‖ *прым.* **сле́дчыцкі**, -ая, -ае.

**СЛЕПАВО́КІ**, -ая, -ае. **1.** Вельмі блізарукі. **2.** Сляпы на адно вока, аднавокі. ‖ *наз.* **слепаво́касць**, -і, *ж.*

**СЛЕПАГЛУХАНЯМЫ́**, -а́я, -о́е (спец.). Пазбаўлены зроку, слыху і нямы. *Школа-інтэрнат для слепаглуханямых* (наз.).

**СЛЕПАНАРО́ДЖАНЫ**, -ая, -ае. Сляпы ад нараджэння. *Слепанароджанае дзіця. Падручнік для слепанароджаных* (наз.).

**СЛЕПАТА́**, -ы́, *ДМ* -паце́, *ж.* **1.** Поўная або частковая адсутнасць зроку. *С. на правае вока.* **2.** *перан.* Няўменне заўважаць, правільна разумець, разбірацца ў чым-н.

**СЛЕ́ПНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; слеп, -пла; -ні; *незак.* Рабіцца сляпым, траціць зрок. *С. к старасці. С. ад празмернага чытання.* ‖ *зак.* **асле́пнуць**, -ну, -неш, -не; асле́п, -пла; -ні.

**СЛЕ́САР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па апрацоўцы, зборцы і рамонце металічных вырабаў. *С.-зборшчык. С.-сантэхнік.* ‖ *прым.* **сле́сарскі**, -ая, -ае.

**СЛЁЗАВЫДЗЯЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Выдзяленне слёз слёзнымі залозамі. ‖ *прым.* **слёзавыдзяля́льны**, -ая, -ае.

**СЛЁЗАТАЧЫ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выклікае моцнае выдзяленне слёз. *С. газ.* **2.** Які пакутуе безупынным выдзяленнем слёз. *Слёзатачывыя вочы.* ‖ *наз.* **слёзатачы́васць**, -і, *ж.*

**СЛЁЗАЦЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Павышанае слёзавыдзяленне.

**СЛЁЗКА** *гл.* сляза.

**СЛЁЗНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сляза. **2.** Які мае намер расчуліць, разжаліць каго-н. *Слёзнае пісьмо. Слёзна* (прысл.) *прасіць.* **3.** *перан.* Набыты цяжкай працай. *Слёзныя капейкі.*

**СЛІ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, сліў, *ж.* Фруктовае дрэва сямейства ружакветных з невялікімі сакавітымі пладамі жоўтага, ліловага і іншага колеру з костачкай у сярэдзіне, а таксама плод гэтага дрэва. ‖ *прым.* **слі́вавы**, -ая, -ае. *С. джэм.*

**СЛІ́ВЕНЬ**, сліўня, *мн.* сліўні, сліўняў, *м.* **1.** Род бязногай, падобнай да змяі яшчаркі. **2.** Вераценніца, ядавітая змяя бурага (самцы) або шэрага (самкі) колеру.

**СЛІВЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Наліўка, настоеная на слівах.

**СЛІ́ЗГАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Слізкае месца; коўзанка.

**СЛІЗГАНУ́ЦЬ**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** *гл.* слізгаць. **2.** Хутка і незаўважна прайсці, прабегчы, шмыгнуць куды-н. *С. у калідор.*

**СЛІЗГАТА́**, -ы́, *ДМ* -гаце́, *ж.* Тое, што і *слізгота.*

**СЛІЗГАЦЕ́ЦЬ**, -гачу́, -го́чаш, -го́ча; -гаці́; *незак.* Тое, што і *слізгаць.* ‖ *наз.* **слізгаце́нне**, -я, *н.*

**СЛІ́ЗГАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** Плаўна рухацца па гладкай, слізкай паверхні. *С. на лыжах.* **2.** Тое, што і *слізгаць* (у 3 знач.). **3.** Коўзацца, катацца. *С. па лёдзе.* ‖ *аднакр.* **слізгану́цца**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -ні́ся. ‖ *наз.* **слі́зганне**, -я, *н.*

**СЛІ́ЗГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Рухацца па гладкай, слізкай паверхні. *Палазы лёгка слізгаюць па ўтаптаным снезе.* **2.** *перан.* Плаўна, лёгка рухацца, перамяшчацца. *Паплавок слізгае па люстранай паверхні возера.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Плаўна пераходзіць з прадмета на прадмет (пра цень, святло і пад.). *Сонечны зайчык слізгае па сцяне.* ‖ *аднакр.* **слізгану́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **слі́зганне**, -я, *н.*

**СЛІЗГО́ТА**, -ы, *ДМ* -го́це, *ж.* (разм.). Слізкасць, абледзянеласць чаго-н. *На дарозе с.*

**СЛІ́ЗЕВЫ** *гл.* слізь.

**СЛІ́ЗІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* слізь. **2.** Пакрыты слізззю або які выдзяляе слізь. *Слізістая шапачка грыба.* ○ **Слізістая абалонка** — тонкая, пакрытая слізззю абалонка, якая высцілае ўнутраную паверхню некаторых органаў чалавека і пазваночных жывёлін. *Запаленне слізістай* (наз.). ‖ *наз.* **слі́зістасць**, -і, *ж.*

**СЛІ́ЗКІ**, -ая, -ае. **1.** Гладкі, такі, на якім цяжка ўтрымацца, устаяць або які цяжка ўтрымаць. *С. паркет. С. грыб.* **2.** *перан.* Ненадзейны, небяспечны, які мае ў сабе нейкую няпэўнасць, двухсэнсавасць. *Слізкую дарогу ты выбраў у жыцці. Слізкая тэма.* **3.** Пакрыты слізззю. *Слізкія лісточкі.*

**СЛІЗНЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Род малюска, які не мае ракавіны. **2.** *перан.* Пра бязвольнага, нікчэмнага чалавека (разм., зневаж.). ‖ *прым.* **слізняко́вы**, -ая, -ае.

**СЛІЗЬ**, слізі, *ж.* Цягучая і слізкая маса, якая выдзяляецца некаторымі клеткамі жывых арганізмаў, слізістымі залозамі. ‖ *прым.* **слі́зісты**, -ая, -ае *і* **слі́зевы**, -ая, -ае.

**СЛІМА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Смоўж, які мае ракавіну і вельмі марудна рухаецца. **2.** *перан.* Пра бязвольнага, бесхарактарнага чалавека (разм., зневаж.). **3.** Спецыяльны знак — @, які выкарыстоўваецца пры запісе адраса электроннай пошты. ‖ *прым.* **слімако́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СЛІ́НА**, -ы, *ж.* Цягучая вадкасць, якая выдзяляецца ў поласці рота чалавека і жывёлы і садзейнічае змочванню і пераварванню ежы. ◊ **Глытаць сліну** — з зайздрасцю, з прагнасцю глядзець на што-н. смачнае, прывабнае, але недаступнае. **Пырскаць слінай** — гаварыць узрушана, з гневам, абурэннем і пад. ‖ *прым.* **слі́нны**, -ая, -ае. *Слінныя залозы.*

**СЛІНАВЫДЗЯЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* Выдзяленне сліны слліннымі залозамі. ‖ *прым.* **слінавыдзяля́льны**, -ая, -ае.

**СЛІНАЦЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Узмоцненае выдзяленне сліны.

**СЛІ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *незак., што.* **1.** Змочваць слінай. *С. нітку.* **2.** Пэцкаць слінай. *Нельга с. кнігу.* ‖ *зак.* **насліні́ць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены (да 1 знач.), **пасліні́ць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены

(да 1 знач.) *і* **заслініць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены (да 2 знач.).

**СЛІ́ННЫ** *гл.* сліна.

**СЛІНЯ́ВЫ**, -ая, -ае (разм., пагард.). Вымазаны слінай; такі, у якога цячэ з рота сліна. *Слінявае дзіця.* ‖ *наз.* **слінявасць**, -і, *ж.*

**СЛО́ВА**, -а, *мн.* -ы, слоў, *н.* **1.** Асноўная сэнсавая адзінка мовы, якая свабодна ўзнаўляецца ў мове і служыць для пабудовы выказвання. *Іншамоўныя словы. Падзяліць с. на склады.* **2.** *адз.* Мова і маўленчыя здольнасці. *Культура с. Валодаць словам.* **3.** звычайна *мн.* Фраза, выказванне; гаворка, размова. *Бацькавы словы. Сказаць некалькі слоў на развітанне.* **4.** *адз.* Вуснае публічнае выступленне, прамова дзе-н., а таксама права, дазвол гаварыць публічна. *Заключнае с. на выбарным сходзе. Атрымаць с. для выступлення.* **5.** *адз., з азначэннем.* Думка, вывад; дасягненне ў якой-н. галіне. *У гэтай справе трэба с. вучоных. Новае с. ў навуцы.* **6.** *мн.* Тэкст да вакальнага твора. *Песня на словы Адама Русака.* **7.** *адз.* Літаратурны твор у форме аратарскай прамовы, пропаведзі ці паслання (уст.). *«С. аб палку Ігаравым».* ◊ **Адным словам** — карацей кажучы. **Ад слова да слова** — ад пачатку да канца. **Апошняе слова** — 1) навейшае дасягненне (кніжн.); 2) заключнае слова падсуднага. **Браць слова назад** (разм.) — адмаўляцца ад сказанага. **Глытаць словы** — гаварыць неразборліва. **Да слова сказаць** — у сувязі са сказаным. **Закінуць слова** *за каго* (разм.) — падтрымаць пры неабходнасці. **З чужых слоў** — з таго, што сказана кім-н. **Не абмовіцца ні адным словам** — змаўчаць. **Слова за слова** — 1) пра паступовае развіццё размовы; 2) спрачаючыся, пасварыцца. **Слоў няма** (разм.) — канешне, так. **У адно слова** — разам, адначасова падумаць, сказаць. **У двух словах** (разм.) — коратка. **Цвёрдае слова** — якому можна верыць. ‖ *памянш.* **слоўца**, -а, *н.* (да 1 і 3 знач.; разм.). ‖ *прым.* **слоўны**, -ая, -ае (да 1—3 знач.).

**СЛОВАЗЛУЧЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Сінтаксічная адзінка, якая ўтвараецца спалучэннем двух або некалькіх слоў, аб'яднаных граматычна і па сэнсе. ‖ *прым.* **словазлуча́льны**, -ая, -ае.

**СЛОВАЗМЯНЕ́ННЕ**, -я, *н.* У граматыцы: змяненне слоў па іх граматычных формах. *С. дзеяслова.* ‖ *прым.* **словазмяня́льны**, -ая, -ае *і* **словазме́нны**, -ая, -ае.

**СЛО́ВАМ**, *пабочн. сл.* Карацей кажучы, увогуле. *С., заўтра першы дзень адпачынку.*

**СЛОВАСКЛАДА́ННЕ**, -я, *н.* У словаўтварэнні: спосаб утварэння новых слоў шляхам злучэння дзвюх або некалькіх асноў.

**СЛОВАТВО́РЧАСЦЬ**, -і, *ж.* Стварэнне новых слоў. *С. маладых паэтаў.*

**СЛОВАЎЖЫВА́ННЕ**, -я, *н.* Ужыванне слоў у мове ў тым ці іншым значэнні. *Правільнае літаратурнае с.*

**СЛОВАЎТВАРЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Раздзел граматыкі, які вывучае спосабы ўтварэння слоў. **2.** Утварэнне слоў у мове па законах і правілах дадзенай мовы. *Спосаб суфіксальнага словаўтварэння назоўнікаў.* ‖ *прым.* **словаўтвара́льны**, -ая, -ае. *Словаўтваральная сістэма.*

**СЛО́ДЫЧ**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Салодкі смак. *Такая с., есці немагчыма.* **2.** *перан.* Прыемнае адчуванне; асалода. *Сэрца ведае с. мар.*

**СЛО́ЕНЫ**, -ая, -ае. Пра цеста і вырабы з яго: такі, які расслойваецца пасля выпечкі. *Слоенае цеста. С. торт.*

**СЛО́ІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Невялікая шкляная або гліняная пасудзіна. *С. з кампотам.* ‖ *прым.* **сло́ікавы**, -ая, -ае.

**СЛОЙ**, -я, *мн.* слаі́, слаёў, *м.* **1.** Маса якога-н. рэчыва, якая пакрывае паверхню чаго-н., або пласт чаго-н., размешчаны паміж іншымі такімі пластамі. *С. гліны. С. тлушчу.* **2.** *перан.*, звычайна *мн.* Тая або іншая група людзей, насельніцтва, грамадства, аднародная па сацыяльных, культурных і пад. прыметах. *Шырокія слаі інтэлігенцыі.*

**СЛО́ЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.* (разм.) **1.** *гл.* слаіць. **2.** Булачка са слоенага цеста.

**СЛОН**, слана́, *мн.* сланы́, слано́ў, *м.* **1.** Буйная траваядная млекакормячая жывёліна трапічных краін з доўгім хобатам і двума біўнямі. **2.** Шахматная фігура, якая можа перамяшчацца на любую колькасць клетак па дыяганалі. ◊ **Слана не заўважыць** — не бачыць самага важнага, вялікага. ‖ *памянш.-ласк.* **сло́нік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **слано́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Вырабы са слановай косці.* ○ **Слановая хвароба** — тое, што і *слановасць.*

**СЛОНАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Вельмі вялікі і тоўсты. *Слонападобная фігура.* ‖ *наз.* **слонападо́бнасць**, -і, *ж.*

**СЛО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Лясная птушка атрада сеўцападобных з рудавата-бурым апярэннем; лясны кулік; вальдшнэп. ‖ *прым.* **сло́нкавы**, -ая, -ае.

**СЛО́ТА**, -ы, *ДМ* сло́це *і* **СЛАТА́**, -ы́, *ДМ* слаце́, *ж.* (разм.). **1.** Сырое надвор'е з дажджом і мокрым снегам; вільгаць, макрэча. *Асенняя с.* **2.** Вадкая гразь на зямлі, на дарогах. ‖ *прым.* **сло́тны**, -ая, -ае.

**СЛО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Лексіка, сукупнасць слоў той ці іншай мовы, дыялекту, якой-н. сацыяльнай групы, асобнага пісьменніка і пад. **2.** Даведачна-інфармацыйнае выданне, якое змяшчае словы (або марфемы, словазлучэнні, ідыёмы і пад.), размешчаныя ў пэўным парадку, тлумачыць значэнні ўключаных адзінак, дае розную інфармацыю пра іх ці іх пераклад на іншую мову або паведамляе звесткі аб прадметах, абазначаемых словамі. *Тлумачальны с. Беларуска-рускі с. Дыялектны с. С. мовы Якуба Коласа. Энцыклапедычны с. Этымалагічны с. Гістарычны с. беларускай мовы.* **3.** Спіс слоў для слоўніка; рэестр. ○ **Частотны слоўнік** — тып слоўніка, у якім даюцца лічбавыя характарыстыкі ўжывальнасці слоў (словаформ, словазлучэнняў) у якой-н. мове. ‖ *прым.* **слоўнікавы**, -ая, -ае. *Слоўнікавая работа.*

**СЛО́ЎНЫ** *гл.* слова.

**СЛО́ЎЦА** *гл.* слова.

**СЛУГА́**, -і, *ДМ* слузе́, *мн.* слу́гі *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) слугі́, слуг, *м.* **1.** Работнік у доме для асабістых паслуг, прыслужвання (уст.). *Панскія слугі.* **2.** *перан.* Чалавек, які прысвяціў сябе цалкам служэнню каму-, чаму-н. *С. народа.*

**СЛУГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; *незак.* Тое, што і *прыслужваць.* ‖ *зак.* **паслугава́ць**, -гу́ю, -гуе́ш, -гу́е; -гу́й. ‖ *наз.* **слугава́нне**, -я, *н.*

**СЛУЖА́КА**, -і, *мн.* -і, -жа́к, *м.* (разм.). **1.** Вопытны, старанны служачы (звычайна пра ваеннага). **2.** Той, хто выслужваецца перад кім-н.; паслугач.

**СЛУЖА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Жанчына, якая выконвае абавязкі слугі (у 1 знач.).

**СЛУ́ЖАЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Асоба, якая працуе ў розных сферах разумовай працы, кіраўніцтва, абслугі, гандлю. ‖ *ж.* **слу́жачая**, -ыя, -ых.

**СЛУ́ЖБА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** *гл.* служыць. **2.** *адз.* Работа, заняткі і абавязкі служачага, а таксама месца такой работы і знаходжанне на ёй. *Ісці на службу.* **3.** *адз.* Выкананне воінскіх абавязкаў. *С. ў радах арміі.* **4.** *чаго* або *якая.* Якая-н. спецыяльная галіна вытворчасці, а таксама арганізацыя, якія займаюцца спецыяльным участкам работы. *Медыцынская с. С. сувязі. С. надвор'я.* **5.** У веруючых: правядзенне набажэнства. *У кафедральным саборы закончылася с.* ◊ **Не па службе, а па дружбе** (разм.) — просьба зрабіць што-н. не па службовым абавязку, а па-сяброўску. ‖ *прым.* **службо́вы**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.). *С. абавязак. Службовае памяшканне. С. ўваход* (для служачых).

**СЛУЖБІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). **1.** Служачы (уст.). **2.** Чалавек, які старанна ставіцца да сваіх службовых абавязкаў. **3.** Чалавек, які з крайнім фармалізмам ставіцца да сваіх службовых абавязкаў. **4.** Кар'ерыст. ‖ *ж.* **службі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**СЛУЖБО́ВЕЦ**, -бо́ўца, *мн.* -бо́ўцы, -бо́ўцаў, *м.* (разм.). Тое, што і *служачы.*

**СЛУЖБО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* служба, служыць. **2.** Другарадны, дапаможны. *Зробленыя падлікі маюць толькі службовае значэнне.* **3.** У граматыцы: словы, якія прызначаны для выражэння граматычных сувязей і адносін, не знамянальныя. *Службовыя часціны мовы.* **4.** Пра сабак: які адносіцца да парод, што дрэсіруюцца для патрэб спецыяльных службаў. *Службовае сабакаводства. Выстаўка службовых сабак.* ‖ *наз.* **службо́васць**, -і, *ж.* (да 3 і 4 знач.).

**СЛУ́ЖКА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -жцы, *Т* -ай (-аю), *ж.*, *мн.* -і, -жак. **1.** *м.* і

**СО́ЦЕННЫ** *гл.* сотня.

**СО́ЦЕНЬКА** *гл.* сотня.

**СО́ЦКІ**, -ага, *мн.* -ія, -іх, *м.* (уст.). Выбарная асоба з сялян, якая дапамагала паліцыі падтрымліваць парадак у вёсцы.

**СО́ЦЫУМ**, -у, *м.* (кніжн.). Тое, што і *грамадства.* ‖ *прым.* **сацыя́льны**, -ая, -ае. *Сацыяльныя навукі. Сацыяльнае заканадаўства.*

**СО́ЧКА** *гл.* сачыць[1].

**СО́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Хлебабулачны выраб з тваражнай начынкай. *Свежы с.*

**СО́ШКА** *гл.* саха.

**СО́ШНЫ** *гл.* саха.

**СО́Я**, -і, *ж.* Бабовая расліна, насенне якой выкарыстоўваецца ў харчовай прамысловасці і ў тэхніцы. ‖ *прым.* **со́евы**, -ая, -ае. *С. алей.*

**СПАБО́РНІЦТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Форма дзейнасці (работы, гульні і пад.), удзельнікі якой імкнуцца выявіць перавагу над кім-н. у дасягненні чаго-н., дасягнуць лепшых вынікаў у чым-н. *Спартыўныя спаборніцтвы. С. па плаванні.*

**СПАБО́РНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., з кім.* Удзельнічаць у спаборніцтве. *С. у сіле і спрыце.*

**СПАВА́ЖНЫ**, -ая, -ае. Павольны, памяркоўны, няспешны, сталы. *С. голас. С. характар.* ‖ *наз.* **спава́жнасць**, -і, *ж.*

**СПАВЕ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Святар, які прымае споведзь. **2.** Той, хто прыйшоў на споведзь. ‖ *ж.* **спаве́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**СПАВІВА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў *і* **СПАВІ́ВІЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Доўгі вузкі пояс, якім спавіваюць маленькіх дзяцей.

**СПАВІ́ЦЬ**, спаўю́, спаўе́ш, спаўе́; спаўём, спаўяце́, спаўю́ць; спаві́ў, -віла́, -ло́; спаві́; спаві́ты; *зак., каго (што).* **1.** Загарнуць дзіця ў пялёнкі і звязаць спавівачом. *С. дзіця.* **2.** Абвіць, аплесці чым-н.; абхапіць. *Сухое галлё спавіта павуціннем.* ‖ *незак.* **спаві́ваць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **спаві́ванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **спаві́вальны**, -ая, -ае.

**СПАВЯДА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Быць на споведзі, прызнаваць свае грахі. **2.** *перан.* Шчыра расказваць пра свае сакрэты, пра сябе. *Няма чаго кожнаму с.* ‖ *зак.* **вы́спаведацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СПАВЯДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак.* **1.** *каго і без дап.* Прымаць споведзь у каго-н. *С. грэшніка.* **2.** *перан., каго.* Ушчуваць за што-н. *С. вучня за дрэнны ўчынак.* **3.** Прытрымлівацца якога-н. вучэння, перакапання і пад. *Паэт кіраваўся прынцыпамі, якія спавядаў Максім Багдановіч.* ‖ *зак.* **паспавяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* **вы́спаведаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *наз.* **спавяда́нне**, -я, *н.*

**СПАГА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** Спачуванне каму-н. у сувязі з чым-н., добразычлівыя адносіны да каго-н.; маральная падтрымка. *С. да людзей.* **2.** Літасць да каго-н. з чыйго-н. боку. *Ніякай спагады гультаям!*

**СПАГАДА́ННЕ**, -я, *н.* Тое, што і *спагада.*

**СПАГАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каму-чаму.* **1.** Спачуваць, выяўляць спагаду да чыйго-н. гора, бяды. *С. чыёй-н. бядзе.* **2.** Праяўляць добразычлівасць, літасць да каго-, чаго-н. *С. вучням.*

**СПАГА́ДЛІВЫ** *і* **СПАГА́ДНЫ**, -ая, -ае. Схільны да спагады, спагадання; чулы, сардэчны. *Спагадлівыя суседзі.* ‖ *наз.* **спага́длівасць**, -і, *ж. і* **спага́днасць**, -і, *ж.*

**СПАГА́НІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *апаганіцца.* ‖ *незак.* **спага́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СПАГА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Забрудзіць, зрабіць паганым, нячыстым. *С. новыя боты.* **2.** *перан.* Зняважыць, пазбавіць святасці. *С. ідэю.* ‖ *незак.* **спага́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СПАГЕ́ЦІ**, *мн., нескл.* Выраб з пшанічнай мукі ў выглядзе доўгіх саломінак, якія адварваюцца цалкам. *С. з таматным соусам.*

**СПАГНА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* спагнаць. **2.** Пакаранне за невыкананне або парушэнне чаго-н. *С. за парушэнне працоўнай дысцыпліны.*

**СПАГНА́ЦЬ**, -ганю́, -го́ніш, -го́ніць; -гані́; -на́ны; *зак., што.* **1.** Прымусіць аддаць прызначанае. *С. доўг. С. штраф.* **2.** *на кім.* Атрымаць задавальненне, выліўшы свой гнеў, дрэнны настрой на каго-н. *С. злосць на дамашніх.* ‖ *наз.* **спагна́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.). ‖ *незак.* **спаганя́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *наз.* **спаганя́нне**, -я, *н.*

**СПАД** *гл.* спасці.

**СПАДАБА́ЦЦА** *гл.* падабацца.

**СПАДА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Форма афіцыйнага ветлівага звароту да асобы ў беларусаў. *Шаноўныя спадарыні і спадары!* ‖ *ж.* **спада́рыня**, -і, *мн.* -і, -рынь.

**СПАДАРО́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які знаходзіцца ў дарозе разам з кім-н. *Мой с. — вясёлы чалавек.* **2.** *перан.* Тое, што спадарожнічае чаму-н., з'яўляецца разам з чым-н. *Сырое надвор'е — с. прастудных захворванняў.* **3.** Нябеснае цела, якое рухаецца вакол планеты, зоркі. *С. Зямлі — Месяц.* **4.** Касмічны апарат, які запускаецца ў касмічную прастору з дапамогай ракетных установак. *Запусціць с.* ‖ *ж.* **спадаро́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 1 знач.). ‖ *прым.* **спадаро́жнікавы**, -ая, -ае (да 4 знач.; спец.) *і* **спадаро́жніцкі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СПАДАРО́ЖНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каму.* Ісці, ехаць разам з кім-н., быць яго спадарожнікам. *С. знаёмым у паездцы на экскурсію.* **2.** *перан., каму-чаму.* Знаходзіцца з нечым у непарыўнай сувязі, адбывацца адначасова або ўслед за чым-н. *Яму заўсёды спадарожнічала ўдача. Песня і музыка спадарожнічаюць людзям усё жыццё.* ‖ *наз.* **спадаро́жнічанне**, -я, *н.*

**СПАДАРО́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які рухаецца ў адным напрамку з чым-н. *Спадарожная машына. С. вецер.* **2.** Які сустракаецца на шляху. *Спадарожная станцыя.*

**СПАДА́РСТВА**, -а, *н., зб.* Форма афіцыйнага ветлівага звароту да прысутных (некалькіх асоб) у беларусаў. *Шаноўнае с., праслухайце аб'явы.*

**СПАДА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -а́е; *незак.* **1.** *гл.* спасці. **2.** Звісаць, спускацца (пра адзежу, тканіну, валасы і пад.). *На плечы спадае каса.*

**СПА́ДЗІСТЫ**, -ая, -ае. Які паступова паніжаецца, мае схіл. *С. бераг. Спадзістая гара.* ‖ *наз.* **спа́дзістасць**, -і, *ж.*

**СПАДЗЯВА́ННЕ**, -я, *н.* Чаканне таго, што мае адбыцца, надзея на што-н. *С. на лепшае жыццё.*

**СПАДЗЯВА́ЦЦА**, -дзяю́ся, -дзяе́шся, -дзяе́цца; -дзяёмся, -дзеяце́ся, -дзяю́цца; *незак.* **1.** *на што, з інф., без дап. і са злуч.* «што». Мець спадзяванне, надзею на што-н. *С. на атрыманне прэміі. Спадзяюся вярнуцца вячэрнім рэйсам.* **2.** *на каго-што.* Быць упэўненым у кім-, чым-н., мець спадзяванні на каго-н. *Спадзяюся на свайго сына.* **3.** *у форме 1 ас. адз. цяпер.* **спадзяю́ся** *ўжыв. ў знач. пабочн. сл.* Выражае ўпэўненасць. *Ты, спадзяюся, лішняга не будзеш гаварыць.* ‖ *зак.* **паспадзява́цца**, -дзяю́ся, -дзяе́шся, -дзяе́цца; -дзяёмся, -дзеяце́ся, -дзяю́цца.

**СПАДКАЕ́МЕЦ**, -мца, *мн.* -мцы, -мцаў, *м.* **1.** Асоба, якая атрымала спадчыну або мае правы на яе. **2.** *перан.* Той, хто прадаўжае чые-н. традыцыі, чыю-н. дзейнасць. ‖ *ж.* **спадкае́мніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **спадкае́мскі**, -ая, -ае.

**СПА́ДКІ**, -аў (разм.). Маёмасць, спадчына, якая пасля смерці ўладальніка пераходзіць у карыстанне каго-н.

**СПАДНІ́ЗУ**, *прысл.* Знізу, з-пад чаго-н. *С. пірог падгарэў.*

**СПАДНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *ж.* Жаночае адзенне ад пояса ўніз, а таксама частка сукенкі ад таліі ўніз. *Купіла новую спадніцу.* ◊ **Бегаць за спадніцай** — заляцацца да жанчын. **Трымацца за спадніцу** — быць у поўнай залежнасці ад жонкі (разм., неадабр.). ‖ *памянш.* **спадні́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **спадні́чны**, -ая, -ае.

**СПАДО́БА**. У выразе: **(не) да спадобы** — (не) падабаецца, (не) па гусце. *Мне не да спадобы такі гарнітур.*

**СПАДРУ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Зручны. *Спадручнае месца для адпачынку.* **2.** *у знач. наз.* **спадру́чны**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Памагаты. *Пайшоў у спадручныя да сталяра.*

**СПАДЦІШКА́**, *прысл.* (разм.). Скрытна, непрыкметна. *Шкодзіць с.*

**СПА́ДЧЫНА**, -ы, *ж.* **1.** Маёмасць, якая пасля смерці яе ўладальніка пераходзіць у чыю-н. уласнасць. *Бацькоўская с.* **2.** Пераход маёмасці памёршага да яго спадкаемцаў (спец.). **3.** З'явы культурнага жыцця, побыту, укладу, якія ўнаследаваны ад мінулых эпох, папярэдніх дзеячаў. *Культурная с.*

**СПА́ДЧЫННАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* спадчынны. **2.** Захоўванне і перадача праз

пакаленні прыродных уласцівасцей арганізма. **3.** Тое, што і *спадчына* (у 2 і 3 знач.) (спец.). ‖ *прым.* **спа́дчынны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**СПА́ДЧЫННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *спадкаемец.* ‖ *ж.* **спа́дчынніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **спа́дчынніцкі**, -ая, -ае.

**СПА́ДЧЫННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* спадчына. **2.** Звязаны са спадчыннасцю. *Спадчынная хвароба.* **3.** Які ідзе ў парадку пераемнасці ад аднаго да другога, заснаваны на гэтым пераходзе. *С. князь.* ‖ *наз.* **спа́дчыннасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**СПАДЫЛБА́**, *прысл.* З-пад нахмураных броваў, недружалюбна, недаверліва, злосна. *Глядзець с.*

**СПАДЫ́СПАДУ**, *прысл.* **1.** Знізу, з ніжняга боку; з-пад чаго-н. *С. сена мокрае. Выцягнуць кнігу с.* **2.** *перан.* З самых глыбінь чаго-н. *С., з самай душы, кралася трывожная думка.*

**СПАЖЫ́ВА**, -ы, *ж.* **1.** Тое, чым лёгка можна пажывіцца (разм.). *Падкі да спажывы.* **2.** Харч, ежа; здабыча. *Лісы шукаюць спажывы.* **3.** *перан.* Матэрыял для роздуму, разумовай дзейнасці і пад. *С. для розуму.*

**СПАЖЫВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *спажывец.* ‖ *ж.* **спажыва́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **спажыва́льніцкі**, -ая, -ае.

**СПАЖЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што.* **1.** Выкарыстоўваць як ежу. *С. мяса.* **2.** Выкарыстоўваць, расходаваць для сябе. ‖ *зак.* **спажы́ць**, -жыву́, -жыве́ш, -жыве́; -жывём, -жывяце́, -жыву́ць; -жы́ты. ‖ *наз.* **спажыва́нне**, -я, *н.* *Тавары народнага спажывання.*

**СПАЖЫВЕ́Ц**, -жыўца́, *мн.* -жыўцы́, -жыўцо́ў, *м.* **1.** Асоба або арганізацыя, якія спажываюць прадукцыю чыёй-н. вытворчасці. *Тавары для масавага спажыўца* (для масавага пакупніка). **2.** *перан.* Той, хто імкнецца да задавальнення толькі сваіх патрэб (неадабр.). ‖ *прым.* **спажыве́цкі**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Спажывецкая кааперацыя.*

**СПАЖЫВЕ́ЦКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* спажывец. **2.** *перан.* Характэрны для чалавека, які стараецца задаволіць толькі ўласныя патрэбы (неадабр.). *Спажывецкія адносіны да жыцця.*

**СПАЖЫ́ТАК**, -тку, *м.* **1.** Тое, што служыць для харчавання, для ежы, а таксама рэчы, якімі карыстаюцца; маёмасць. **2.** *перан.* Карысць, каштоўнасць. *С. ад кветак вялікі.* **3.** Карыстанне. *Аддаць людзям на с.*

**СПАЖЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Прызначаны для яды, спажывання. *Спажыўныя расліны.* **2.** Тое, што і *пажыўны.* ‖ *наз.* **спажы́ўнасць**, -і, *ж.*

**СПАЖЫ́ЦЬ** *гл.* спажываць.

**СПА́ЗМА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Сутарга, сутаргавае скарачэнне мышцаў. *Спазмы ў горле.* ‖ *прым.* **спазматы́чны**, -ая, -ае *і* **спасты́чны**, -ая, -ае.

**СПАЗНА́ЦЦА**, -на́юся, -на́ешся, -на́ецца; *зак.* (разм.). **1.** Пазнаёміцца, здружыцца; блізка сысціся. *Нашы дзеці спазналіся ў школе.* **2.** *з чым.* Сутыкнуцца з чым-н., зведаць што-н. *С. з цяжкім жыццём.* ‖ *незак.* **спазнава́цца**, -знаюся, -знае́шся, -знае́цца; -знаёмся, -знаяце́ся, -знаю́цца.

**СПАЗНА́ЦЬ**, -зна́ю, -зна́еш, -зна́е; -зна́ны; *зак.* **1.** *што.* Засвоіць, асэнсаваць з'явы рэчаіснасці, атрымаць уяўленне. *С. законы развіцця грамадства. С. ісціну.* **2.** Набыць веды ў чым-н., пазнаць што-н. *С., як сканструяваны агрэгат.* **3.** *і з дадан.* Зазнаць, зведаць што-н. на ўласным вопыце, перажыць што-н. *С. нягоды і пакуты. С., што такое вайна.* ‖ *незак.* **спазнава́ць**, -знаю́, -знае́ш, -знае́; -знаём, -знаяце́, -знаю́ць. ‖ *наз.* **спазнава́нне**, -я, *н.*

**СПАЗНЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Прыход, наступленне чаго-н. пазней устаноўленага часу. *Прыйсці на работу са спазненнем. Цягнік прыйшоў са спазненнем.*

**СПАЗНІ́ЦЦА**, спазнюся, спо́знішся, спо́зніцца; *зак.* **1.** З'явіцца пазней, чым трэба. *С. на самалёт.* **2.** *з чым, з інф.* і *без дап.* Не паспець зрабіць што-н. своечасова. *Спазнілася падаць дакументы.* ‖ *незак.* **спазня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**СПАІ́ЦЬ**, спаю́, спо́іш, спо́іць; спо́ены; *зак., каго (што).* **1.** Прывучыць да пастаяннага п'янства. *С. вёску.* **2.** Напаіць дап'яна. *С. хлопца.* ‖ *незак.* **спо́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **спо́йванне**, -я, *н.*

**СПА́ЙВАННЕ** *гл.* спаяцца.

**СПА́ЙВАЦЦА** *гл.* спаяцца.

**СПА́ЙВАЦЬ** *гл.* спаяць.

**СПА́ЙКА**, -і, *ДМ* спа́йцы, *мн.* -і, спа́ек, *ж.* **1.** *гл.* спаяцца, спаяць. **2.** Месца спайвання, злучэння частак чаго-н. *С. трубкі. С. плеўры.* **3.** *перан., адз.* Цесная сувязь, яднанне людзей. ‖ *прым.* **спа́ечны**, -ая, -ае.

**СПАКАВА́ЦЬ** *гл.* пакаваць.

**СПАКАЙНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Рабіцца больш спакойным (спакойнай). ‖ *зак.* **паспакайне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**СПАКВАЛЯ́**, *прысл.* (разм.). Павольна, паступова. *Ноч с. ахінала зямлю. С. разабрацца ў паперах.*

**СПАКЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Тое, што і *кастрыраваць. С. жарабка.*

**СПАКО́Й**, -ю, *м.* **1.** Стан цішыні, адсутнасць трывогі, хваляванняў, шуму. *Хвораму дзіцяці патрэбен с. Пакінуць каго-н. у спакоі* (перастаць турбаваць). **2.** Ураўнаважанасць, фізічнае і душэўнае заспакаенне. *Прыемны с. на душы. Захоўваць с.* ◊ **Вечны спакой** — смерць.

**СПАКО́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца ў стане спакою, малярухомы або нерухомы. *Спакойная рака. Сядзець спакойна* (прысл.). **2.** Які выражае спакой (у 2 знач.), без душэўных трывог, перажыванняў. *Спакойнае жыццё. На сэрцы спакойна* (прысл.). **3.** Стрыманы, ураўнаважаны, ціхмяны, які нікога не раздражняе. *С. конь. Спакойнага нораву чалавек.* **4.** Роўны ў сваім працяканні. *Спакойная хада. Спакойная гутарка.* **5.** Не ваенны, мірны. *С. час.* **6.** Які нічым і нікім не парушаецца, адбываецца ў спакоі. *Спакойная старасць.* **7.** Прыемны для вока (пра святло, фарбы і пад.). *Спакойныя фарбы пейзажаў. Спакойнае, мяккае святло.* ‖ *наз.* **спако́йнасць**, -і, *ж.*

**СПАКО́Н**. У выразе: **спакон веку (вякоў)** — з даўніх часоў. *С. веку вядома.*

**СПАКОНВЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *спрадвечны.*

**СПАКУ́СА**, -ы, *мн.* -ы, -ку́с, *ж.* **1.** Тое, што вельмі вабіць чалавека, спакушае, выклікае неадольнае жаданне, цягу да чаго-н. *Не паддавацца ніякім спакусам.* **2.** Схіленне да інтымнай блізкасці; прываблiванне. *Была яна не толькі чароўнай весялухай, але і зводніцай на спакусу.* ‖ *прым.* **спаку́сны**, -ая, -ае.

**СПАКУСІ́ЦЦА**, -кушу́ся, -ку́сішся, -ку́сіцца; *зак.* **1.** *на што, чым* і *без дап.* Быць прываблёным чым-н. спакуслівым. *Нехта спакусіўся на мае цукеркі.* **2.** *з інф.* і *без дап.* Не ўстаяць перад якім-н. жаданнем, спакусай, схіліцца да якога-н. дзеяння, справы. *С. паехаць на мора.* ‖ *незак.* **спакуша́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СПАКУСІ́ЦЬ**, -кушу́, -ку́сіш, -ку́сіць; -ку́шаны; *зак., каго (што).* **1.** *чым* і *з інф.* Прывабіць чым-н. захапляючым, прыемным. *С. пакупнікоў моднымі таварамі.* **2.** Дабіцца інтымнай блізкасці. *С. дзяўчыну.* ‖ *незак.* **спакуша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **спакушэ́нне**, -я, *н.*

**СПАКУ́СЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны спакусіць (у 1 знач.); прынадны, прывабны, захапляльны. *С. пах суніц.* **2.** Які абуджае пачуццёвую цягу; сексуальны. *Спакуслівая дзяўчына.* ‖ *наз.* **спаку́слівасць**, -і, *ж.*

**СПАКУ́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які спакушае каго-н. ‖ *ж.* **спаку́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**СПАКУ́ТАВАЦЦА**, -туюся, -туешся, -туецца; -туйся; *зак.* Змардавацца, змучыцца. *С. ў адзіноце.*

**СПАЛАСАВА́ЦЬ** *гл.* паласава́ць.

**СПАЛАСКА́ЦЬ**, -лашчу́, -ло́шчаш, -ло́шча; -лашчы́; -ласка́ны; *зак., каго-што.* Абмыць, змыць бруд і пад. *Спалошча дождж зямлю.* ‖ *незак.* **спало́скваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **спало́скванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**СПАЛАСНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* Злёгку змыць з сябе пыл, пот. *С. ў рэчцы пасля малацьбы.* ‖ *незак.* **спало́сквацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СПАЛАСНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* Злёгку абмыць, апаласнуць. *С. цэбар.* ‖ *незак.* **спало́скваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **спало́скванне**, -я, *н.*

**СПАЛАТНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які стаў бледным, падобным на палатно (ад страху, бяды і пад.).

**СПАЛАТНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Стаць бледным, падобным на палатно (ад страху, бяды і пад.).

**СПАЛЕ́ННЕ** *гл.* паліць[1].

**СПАЛІ́ЦЬ** *гл.* паліць[1].

**СПАЛО́Х**, -у, *м.* Раптоўнае адчуванне страху; стан перапалоху, хваляванне. *С. ахапіў прысутных.*

**СПАЛО́ХАЦЦА** *гл.* палохацца.

**СПАЛО́ХАЦЬ** *гл.* палохаць.

**СПАЛУЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які дазваляе спалучыць што-н., з'яўляецца вынікам спалучэння чаго-н. *Складаназлучаныя сказы са спалучальнымі адносінамі. С. рэфлекс.* ‖ *наз.* **спалуча́льнасць**, -і, *ж.*

**СПАЛУЧА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* спалучыцца. **2.** Дастасоўвацца адно да другога, гарманіраваць. *У карціне ўдала спалучаюцца святло і цені.* **3.** Уступаць у сувязь, уваходзіць у спалучэнне. *Прыметнікі спалучаюцца з назоўнікамі.* **4.** Служыць працягам адно другога; злучацца. *Два пакоі спалучаюцца са спальняй.* ‖ *наз.* **спалучэ́нне**, -я, *н.*

**СПАЛУЧЫ́ЦЦА**, -лучу́ся, -лу́чышся, -лу́чыцца; *зак.* Злучыцца адначасова, аб'яднацца ва ўзаемнай адпаведнасці. ‖ *незак.* **спалуча́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **спалучэ́нне**, -я, *н.*

**СПАЛУЧЫ́ЦЬ**, -лучу́, -лу́чыш, -лу́чыць; -лу́чаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Злучыць адно з другім, аб'яднаць. *С. тэорыю з практыкай. С. фарбы, колеры.* **2.** *каго-што чым.* Наладзіць сувязь з кім-, чым-н. *С. рэкі каналам.* ‖ *незак.* **спалуча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **спалучэ́нне**, -я, *н.*

**СПА́ЛЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *паліць* (у 1 знач.).

**СПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для спання. *С. вагон.*

**СПА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* **1.** Пакой, дзе спяць. *С. для дачкі.* **2.** Камплект мэблі для такога пакоя (разм.). *Набыць спальню ў крэдыт.*

**СПАНДЭ́Й**, -я, *м.* (спец.). **1.** У антычным вершаскладанні: стапа з двух доўгіх складоў. **2.** У сілаба-танічным вершаскладанні: стапа харэя або ямба са звышсхемным націскам; часцей сустракаецца на пачатку верша. ‖ *прым.* **спандэ́ічны**, -ая, -ае.

**СПАНІЭ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Парода даўгашэрсных каратканогіх паляўнічых сабак з вялікімі вісячымі вушамі.

**СПАННЁ** *гл.* спаць.

**СПАНТА́ННЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які ўзнікае пад уздзеяннем унутраных прычын, без непасрэднага ўздзеяння звонку; адвольны. *Спантаннае рашэнне.* ‖ *наз.* **спанта́ннасць**, -і, *ж.*

**СПАПЯЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ператварыўся ў попел. *Спапялелая будыніна.* **2.** *перан.* Які набыў колер попелу; шэры.

**СПАПЯЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* **1.** Ператварыцца ў попел, згарэць дашчэнту. **2.** *перан.* Стаць попельным, шэрым.

**СПАПЯЛІ́ЦЦА**, -лю́ся, -лі́шся, -лі́цца; -лі́мся, -пеліце́ся, -ля́цца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Ператварыцца ў попел. **2.** *перан.* Растраціцца ў змаганні з чым-н., у перажываннях за што-н. (пра сілы, энергію і пад.). ‖ *незак.* **спапяля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**СПАПЯЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -пеліце́, -ля́ць; -лёны; *зак., каго-што.* **1.** Ператварыць у попел, спаліць дашчэнту. *С. вёску.* **2.** *перан.* Растраціць у змаганні, перажываннях, хваляваннях (сілу, энергію і пад.). ‖ *незак.* **спапяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **спапяле́нне**, -я, *н.*

**СПАРАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для спаравання, мае адносіны да спаравання; злучны. *С. пункт. С. перыяд.*

**СПАРАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ру́ецца; *зак.* Пра жывёл: злучыцца. ‖ *незак.* **спаро́ўвацца**, -аецца; *наз.* **спаро́ўванне**, -я, *н.*

**СПАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго.* Пра жывёл: звесці для злучкі; злучыць. ‖ *незак.* **спаро́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **спарава́нне**, -я, *н.*

**СПАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Нарадзіць, даць жыццё каму-н. *С. сына.* **2.** *перан., каго-што.* З'явіцца прычынай узнікнення чаго-н., стаць крыніцай чаго-н. *Замоўчванне фактаў спарадзіла чуткі.* ‖ *незак.* **спараджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **спараджэ́нне**, -я, *н.*

**СПАРА́ДКАВАЦЬ** *гл.* парадкаваць.

**СПАРАДЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Непастаянны, выпадковы, які праяўляецца нерэгулярна. *Спарадычная з'ява.* ‖ *наз.* **спарады́чнасць**, -і, *ж.*

**СПАРАЖНІ́ЦЦА**, -ражню́ся, -ро́жнішся, -ро́жніцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць парожнім, пустым. *Пасуда спаражнілася.* **2.** Выдаліць з арганізма рэшткі пераатраўленай ежы (разм.). **3.** Пазбавіцца ад цяжарнасці шляхам выдалення плода (разм.). ‖ *незак.* **спаражня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**СПАРАЖНІ́ЦЬ**, -ражню́, -ро́жніш, -ро́жніць; -ро́жнены; *зак., што.* Зрабіць парожнім, пустым. *С. збан.* ‖ *незак.* **спаражня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **спаражне́нне**, -я, *н.*

**СПАРАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -заваны; *зак., каго-што.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Давесці да стану паралічу. *Ногі спаралізавала* (безас.). **2.** *перан.* Пазбавіць магчымасці дзейнічаць, аслабіць праяўленне чаго-н. *Страх спаралізаваў яе. С. сілы ворага.*

**СПАРАХНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які згніў, ператварыўся ў труху. *Спарахнелыя дошкі.* **2.** *перан.* Пра чалавека: састарэлы, драхлы. ‖ *наз.* **спарахне́ласць**, -і, *ж.*

**СПАРАХНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** Згніць, ператварыцца ў труху, пыл. *Бервяно спарахнела.* **2.** *перан.* Пра чалавека: састарэць, зрабіцца драхлым.

**СПАРАШУТАВА́ЦЬ** *гл.* парашутаваць.

**СПА́РВАННЕ** *гл.* спарыць[1].

**СПА́РВАЦЦА** *гл.* спарыцца[1].

**СПА́РВАЦЬ** *гл.* спарыць[1].

**СПА́РЖА**, -ы, *ж.* Травяністая агародная расліна, тоўстыя белыя падземныя парасткі якой ужыв. ў ежу. ‖ *прым.* **спа́ржавы**, -ая, -ае.

**СПАРНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *незак.* Станавіцца больш спорным (у 1 знач.). *Дождж усё спарнее.*

**СПАРО́ЎВАЦЦА** *гл.* спаравацца.

**СПАРО́ЎВАЦЬ** *гл.* спараваць.

**СПАРО́ЦЬ**, спару́, спо́раш, спо́ра; спары́; спо́раты; *зак.* **1.** *што.* Адпароць. *С. карункі з сукенкі.* **2.** *каго-што.* Зняць (звычайна зверху ўніз) адкуль-н. *С. птушынае гняздо з бярозы.* **3.** *каго-што.* Скалоць, пакалоць чым-н. вострым (разм.). ‖ *незак.* **спо́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СПАРТ...** (*гл.* **спорт...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «спорт...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *спартзала, спартклуб.*

**СПАРТАКІЯ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -кія́д, *ж.* Масавае спаборніцтва па розных відах спорту. ‖ *прым.* **спартакія́дны**, -ая, -ае.

**СПАРТА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* **1.** Грамадзянін Спарты — дзяржавы ў Старажытнай Грэцыі, жыхары якой вызначаліся вынослівасцю, цярплівасцю, вялі суровы лад жыцця. *Лагер спартанцаў.* **2.** Чалавек, які задавальваецца самым неабходным, адмаўляецца ад раскошы, вядзе суровы лад жыцця. ‖ *ж.* **спарта́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **спарта́нскі**, -ая, -ае.

**СПАРТА́ЧЫЦЬ** *гл.* партачыць.

**СПАРТСМЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца спортам (прафесійна або сістэматычна). ‖ *ж.* **спартсме́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **спартсме́нскі**, -ая, -ае.

**СПАРТЫ́ЎНЫ** *гл.* спорт.

**СПА́РЫНГ**, -у, *м.* (спец.). Трэніровачны бой баксёраў перад спаборніцтвам; вольны бой.

**СПА́РЫЦЦА**[1], -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). Аб'яднацца ў пару разам для сумеснай работы. ‖ *незак.* **спа́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СПА́РЫЦЦА**[2], -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). **1.** Угрэцца, спацець (разм.). *У кажусе можна с.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра малако: закіпець.

**СПА́РЫЦЬ**[1], -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго-што.* Аб'яднаць у пару для сумеснай работы. ‖ *незак.* **спа́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **спа́рванне**, -я, *н.*

**СПА́РЫЦЬ**[2], -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* **1.** Зварыць, утушыць у закрытай пасудзіне. *С. буракі.* **2.** Закіпяціць (малако). *С. малако.*

**СПАРЫ́Ш**[1], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Два спараныя прадметы (каласы, плады, арэхі і пад.). *Агуркі-спарышы.* **2.** Два гліняныя

гаршчочкі, злучаныя агульнай ручкай, у якіх насілі яду ў час палявых работ.

**СПАРЫШ**[2], -у, *м.* Аднагадовая расліна сямейства драсёнавых, якая звычайна расце каля дарог. *Буяў с.*

**СПАС**[1], -у, *м.* У выразе: **спасу няма** — 1) *ад каго-, чаго-н.*, не пазбавіцца, не ўратавацца ад каго-, чаго-н. *Спасу няма ад пустазелля*; 2) пра вельмі моцную ступень праяўлення чаго-н. *Спасу няма ад дажджу.*

**СПАС**[2], -а, *м.* **1.** Збавіцель, адна з назваў Хрыста. **2.** Абраз з вобразам Хрыста. **3.** Неафіцыйная назва кожнага з трох жніўеньскіх царкоўных свят, прысвечаных Збавіцелю. *Спас першы — мядовы, другі — яблычны, трэці — палатняны.*

**СПАСАВА́ЦЬ** *гл.* пасаваць[2-3].

**СПА́САЎКА**, -і, *ДМ* -саўцы, *мн.* -і, -савак, *ж.* **1.** Пост перад Спасам (у 3 знач.) **2.** Гатунак груш, якія наспяваюць к Спасу (у 3 знач.).

**СПА́СВІЦЬ**, спасу́, спасе́ш, спасе́; спасём, спасяцé, спасу́ць *і* спасу́, спа́свіш, спа́свіць; спа́свім, спа́свіце, спа́свяць; спа́свіў, -віла; спасі́; спа́свены; *зак., што.* Зрабіць патраву або зрасходаваць на падножны корм. *С. зялёную траву скацінай.* ‖ *незак.* **спа́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **спа́сванне**, -я, *н.*

**СПАСЛА́ЦЦА**, спашлю́ся, спашлéшся, спашлéцца; спашлёмся, спашляцéся, спашлю́цца; спашлі́ся; *зак.* Указаць на каго-, што-н. у пацвярджэнне ці апраўданне чаго-н.; прывесці ў якасці доказу. *С. на аўтарытэтныя крыніцы.* ‖ *незак.* **спасыла́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **спасы́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж. і* **спасыла́нне**, -я, *н.*

**СПАСТЫ́ЧНЫ** *гл.* спазма.

**СПА́СЦІ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., спадзé; спаў, спа́ла; *зак.* **1.** Упасці ўніз, аддзяліўшыся ад чаго-н., не ўтрымаўшыся на чым-н. *Абруч спаў з кадушкі.* **2.** Пайсці на спад, панізіцца ва ўзроўні (пасля паводкі). *Пасля паводкі вада спала.* **3.** Стаць меншым у сіле праяўлення, аслабець; меншаючы, знікнуць. *К вечару тэмпература ў дзіцяці спала. Пухліна на руцэ спала.* ◊ **Спасці з цела (твару)** (разм.) — схуднець. ‖ *незак.* **спада́ць**, -áе. ‖ *наз.* **спад**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 2 і 3 знач.).

**СПАСЦІ́ГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; спасціг, -гла; -ні; -нуты; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Усвядоміць, зразумець, пранікнуць у сутнасць чаго-н. *С. філасофскі сэнс рамана.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Выпасці на долю каго-, чаго-н., здарыцца з кім-, чым-н. (пра што-н. дрэннае, непрыемнае). *Бяда спасцігла іх сям'ю.* ‖ *незак.* **спасціга́ць**, -áю, -áеш, -áе. ‖ *наз.* **спасціжэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**СПАСЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** *гл.* спаслацца. **2.** Цытата з тэксту або ўказанне крыніцы, на якую спасылаюцца. *С. даецца ў канцы раздзела.* ‖ *прым.* **спасы́лачны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**СПАТКА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* спаткацца, спаткаць. *Нечаканае с.* **2.** Сустрэча закаханых, звычайна па ранейшай дамоўленасці. *Дзяўчына спяшаецца на с.* ◊ **Да спаткання** — да сустрэчы.

**СПАТКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** *з кім-чым.* Трапіцца насустрач, сысціся з кім-н., рухаючыся з супрацьлеглых бакоў. *С. на вуліцы.* **2.** *з кім.* Сысціся для сумеснага правядзення часу, па справе, для спартыўнай барацьбы, спаборніцтва; убачыцца з кім-н. *Спаткаліся мацнейшыя шахматысты.* **3.** Выявіцца, трапіцца. *У кнізе спаткаліся вельмі цікавыя цытаты.* ‖ *незак.* **спатыка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **спатка́нне**, -я, *н.*

**СПАТКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* **1.** Убачыць, ідучы насустрач або прыйшоўшы куды-н. *С. аднавяскоўца ў горадзе.* **2.** Выйсці прывітаць каго-н., прыняць. *С. гасцей ля веснічак.* **3.** Дачакацца наступлення, з'яўлення, надыходу і пад. чаго-н. *С. світанне ў полі.* **4.** Спасцігнуць каго-н., надарыцца каму-н. *Спаткала яго нейкае ліха.* ‖ *незак.* **спатыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **спатка́нне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.).

**СПАТНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *спацелы.* ‖ *ж.* **спатне́ласць**, -і, *ж.*

**СПАТНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Тое, што і *спацець.*

**СПАТРЭ́БІЦЦА**, -блюся, -бішся, -біцца; *зак.* Стаць патрэбным, неабходным. *Часопісы яшчэ спатрэбяцца, асабліва сучасныя.*

**СПАТРЭ́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак., што.* Выкарыстаць на што-н. *С. цукар на варэнне.*

**СПАТЫКА́ЦЦА**[1], -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* спатыкнуцца. **2.** Ісці няспрытна, няёмка, няўпэўнена ступаючы. *Хто сядзіць — не спатыкаецца, хто маўчыць — не памыляецца* (разм.).

**СПАТЫКА́ЦЦА**[2] *гл.* спаткацца.

**СПАТЫКА́ЦЬ** *гл.* спаткаць.

**СПАТЫКА́Ч**, -а́, *м.* Гарэлка або спірт, настоеныя на мускатным арэху і прыправах. *Чарачка спатыкача.* ‖ *прым.* **спатыка́чны**, -ая, -ае.

**СПАТЫКНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Зачапіўшыся за што-н. на бягу ці ідучы, страціць раўнавагу. *С. аб камень.* **2.** *перан.* Спыніць якое-н. дзеянне, перастаць рабіць што-н., натрапіўшы на перашкоды, цяжкасці (разм.). *Толькі б не с., чытаючы верш па памяці.* **3.** *перан.* Зрабіць памылку ў жыцці (разм.). *Быў выпадак, і я спатыкнуўся.*

**СПАЎЗЦІ́**, -зу́, -зе́ш, -зе́; -зём, -зяце́, -зу́ць; споўз, спаўзла́, -зло́; -зі́; *зак.* **1.** Спусціцца паўзком або цяжка, павольна злезці адкуль-н. *С. з гары ўніз. С. са стога.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паволі, паступова ссунуцца, саслізнуць, зрушыцца з месца (аб прадметах). *Павязка спаўзла з калена.* **3.** Аддаліцца паўзком, сысці куды-н. *Чарапаха спаўзла некуды.* **4.** *перан.* Паступова адыходзячы ад правільных пазіцый, стаць на заганны шлях. *С. да фармалізму ў аналізе* (неадабр.). ‖ *незак.* **спаўза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **спаўза́нне**, -я, *н.* (да 1, 2 і 4 знач.).

**СПАЎЗЦІ́СЯ**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -зе́цца; -зёмся, -зяце́ся, -зу́цца; спо́ўзся, спаўзла́ся, -зло́ся; *зак.* Паўзучы, сабрацца ў адно месца. *Мурашкі спаўзліся да пня.* ‖ *незак.* **спаўза́цца**, -а́ецца; -а́емся, -а́ецеся, -а́юцца. ‖ *наз.* **спаўза́нне**, -я, *н.*

**СПАЎНА́**, *прысл.* Поўнасцю, цалкам. *Атрымаць разлік с.*

**СПАЎНЯ́ЦЦА** *гл.* споўніцца.

**СПАХАПІ́ЦЦА**, -хаплю́ся, -хо́пішся, -хо́піцца; *зак.* **1.** Раптоўна заўважыць памылку, недагляд, успомніць пра што-н. забытае. *Спахапілася, што не ўсё дапісала ў анкеце.* **2.** Схамянуцца, падхапіцца. *Спахапілася тады, як сын выйшаў за дзверы.* ‖ *незак.* **спахапля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца *і* **спахо́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СПАХМУРНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Пра з'явы прыроды: які зрабіўся хмурным, змрочным. *Спахмурнелае неба.* **2.** *перан.* Які стаў сумным, маркотным (пра чалавека, яго твар). *С. твар.* ‖ *наз.* **спахмурне́ласць**, -і, *ж.*

**СПАХМУРНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра з'явы прыроды: зрабіцца хмурным, змрочным. *Над лесам неба спахмурнела.* **2.** *перан.* Стаць сумным, невясёлым, маркотным. *Ад такой нечаканай навіны маці спахмурнела.*

**СПАХО́ПЛІВАЦЦА** *гл.* спахапіцца.

**СПАЦЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Потны, пакрыты потам. *С. твар.* **2.** Запацелы, пакрыты вільгаццю. *Спацелыя шыбы.* ‖ *наз.* **спаце́ласць**, -і, *ж.*

**СПАЦЕ́ЦЬ** *гл.* пацець.

**СПА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., спіцца; спа́лася; *безас., незак.* Пра жаданне, магчымасць спаць. *На свежым паветры добра спіцца.*

**СПАЦЬ**, сплю, спіш, спіць; спім, спіце́, спяць; спаў, спа́ла; спі; *незак.* **1.** Знаходзіцца ў стане сну. *Пара класціся с.* **2.** *перан.* Заціхнуць, быць бязлюдным; быць у стане спакою, нерухомасці. *Горад спіць. Цёмнае возера спіць. Вецер спіць.* **3.** *перан.* Быць пасіўным; бяздзейнічаць. *Трэба было не спаць, а рашуча дзейнічаць.* **4.** *з кім.* Знаходзіцца ў палавой сувязі з кім-н. (разм.). *С. з чужой жонкай — грэх.* ◊ **Спаць вечным сном** — пра памёршага. **Спаць мёртвым сном** — моцна спаць. ‖ *наз.* **спанне́**, -я́, *н.* (да 1 знач.; разм.).

**СПАЧА́ТКУ**, *прысл.* **1.** Перш за ўсё; у першы момант. *С. падумай, а потым гавары.* **2.** Яшчэ раз; зноў. *Пачаць жыццё с.*

**СПАЧУВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выражае спачуванне каму-н. з прычыны гора, няшчасця, бяды і пад. **2.** Спагадлівы. *С. чалавек.* ‖ *наз.* **спачува́льнасць**, -і, *ж.*

**СПАЧУВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Спагадлівыя адносіны да чыёй-н. бяды, гора, няшчасця; спагада. *Суседзі прыходзілі са сваімі спачуваннямі.* **2.** Добразычлівыя адносіны

да каго-, чаго-н., маральная падтрымка. *Яго ўчынкі не знайшлі спачування ў сяброў.*

**СПАЧУВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каму-чаму.* **1.** Адносіцца да каго-, чаго-н. са спачуваннем, жалем. *С. бацькоўскаму гору.* **2.** Добразычліва ставіцца да каго-, чаго-н. *С. маладзёжнаму руху.*

**СПАЧЫВА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* (уст.). Спальня (звычайна ў палацы, у панскім доме і пад.).

**СПАЧЫ́Н**, -у, *м.* **1.** Перапынак у працы для аднаўлення сіл. **2.** *перан.* Смерць, супакой (высок.). *Вечны с.*

**СПАЧЫ́НАК**, -нку, *м.* Тое, што і *спачын* (у 1 знач.).

**СПАЧЫ́ЦЬ**, -чну́, -чне́ш, -чне́; -чнём, -чняце́, -чну́ць; -чні́; *зак.* **1.** Аднавіць свае сілы адпачываючы. *С. перад дарогай.* **2.** *перан.* Памерці (высок.). ‖ *незак.* **спачыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **спачыва́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**СПАЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -я́ецца; *зак.* **1.** Злучыцца шляхам паяння. *Канцы дроту спаяліся моцна.* **2.** *перан.* Злучыцца ў адно непарыўнае цэлае, зрабіцца дружнымі. *Дзіцячы калектыў хутка спаяўся.* ‖ *незак.* **спа́йвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **спа́йванне**, -я, *н. і* **спа́йка**, -і, *ДМ* спа́йцы, *ж.*

**СПАЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; -я́ны; *зак.* **1.** *што.* Злучыць паяннем. *С. трубы.* **2.** *перан., каго-што.* Непарыўна звязаць, з'яднаць. *С. каманду.* ‖ *незак.* **спа́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **спа́йванне**, -я, *н. і* **спа́йка**, -і, *ДМ* спа́йцы, *ж.*

**СПЕКТА́КЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Пастаноўка, паказ п'есы ў тэатры. *Прэм'ера спектакля.* **2.** *перан.* Пра якое-н. незвычайнае здарэнне, відовішча, выпадак і пад. *Пара канчаць гэты с.!*

**СПЕКТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Сукупнасць усіх значэнняў якой-н. велічыні, што характарызуе сістэму або працэс. *Аптычны с.* **2.** Сукупнасць колеравых палос, якія атрымліваюцца пры праходжанні промня праз праламляльнае асяроддзе. *Сонечны с.* ‖ *прым.* **спектра́льны**, -ая, -ае.

**СПЕКТРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да спектра (у 2 знач.), да спектральных прамянёў, напр.: *спектраскапія, спектраметрыя, спектраграма.*

**СПЕКУЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; *незак.* **1.** *чым* і *на чым.* Займацца спекуляцыяй[1] (у 1 знач.) *С. дэфіцытнымі таварамі.* **2.** *перан., на чым.* Дзейнічаць, выкарыстоўваючы што-н. у карыслівых мэтах (неадабр.). *С. на даверы.* ‖ *аднакр.* **спекульну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (разм.). ‖ *наз.* **спекуліва́нне**, -я, *н.*

**СПЕКУЛЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца спекуляцыяй[1] (у 1 знач.). ‖ *ж.* **спекуля́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **спекуля́нцкі**, -ая, -ае.

**СПЕКУЛЯ́ЦЫЯ**[1], -і, *ж., перан., на чым* і *чым.* Разлік, намер, заснаваныя на выкарыстанні чаго-н. з карыслівымі мэтамі. *С. на часовых цяжкасцях. С. акцыямі. С. на павышэнні попыту.* ‖ *прым.* **спекуляцы́йны**, -ая, -ае.

**СПЕКУЛЯ́ЦЫЯ**[2], -і, *ж.* (кніжн.). Абстрактныя разважанні, адарваныя ад вопыту і практыкі. *Псеўданавуковыя спекуляцыі.* ‖ *прым.* **спекуляцы́йны**, -ая, -ае.

**СПЕ́ЛАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* спелы. **2.** *перан.* Высокая ступень чаго-н., дасканаласць; сталасць. *Сапраўдная творчая спеласць прыйшла значна пазней.*

**СПЕЛЕАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб вывучэнні пячор — іх паходжання, будовы і выкарыстання чалавекам. ‖ *прым.* **спелеалагі́чны**, -ая, -ае.

**СПЕЛЕО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца спелеалогіяй як спецыяліст або аматар. *Спартсмен-с. абследуе пячоры са спартыўна-турысцкімі мэтамі.*

**СПЕ́ЛЫ**, -ая, -ае, *н.* **1.** Які паспеў, выспеў, стаў прыгодным для ўжывання. *С. яблык.* **2.** *перан.* Які дасягнуў вопытнасці, майстэрства (пра музыканта, артыста, мастака і пад.). **3.** *перан.* Дасканалы, грунтоўна абдуманы; закончаны. *Спелыя думкі.* ‖ *зак.* **спе́ласць**, -і, *ж.*

**СПЕ́РАДУ**, *прысл.* і *прыназ.* **1.** *прысл.* З пярэдняга боку. *Прышыла бант с.* **2.** *прыназ. з Р.* Выражае прасторавыя адносіны; ужыв. для ўказання на месца наперадзе чаго-н. *Ісці с. калоны.*

**СПЕ́РМА**, -ы, *ж.* (спец.). Рэчыва, якое выпрацоўваюць мужчынскія палавыя залозы і якое ўтрымлівае палавыя клеткі.

**СПЕРМАТАЗО́ІД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Мужчынская палавая клетка чалавека, жывёл і некаторых раслін.

**СПЕ́РЦІ**[1], сапрэ́; *зак.* (разм.). **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Сціснуць, здушыць. *Дух спёрла* (безас.). ‖ *незак.* **спіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СПЕ́РЦІ**[2], сапру́, сапрэ́ш, сапрэ́; сапро́м, сапраце́, сапру́ць; спёр, спёрла; сапры́; спёрты; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Украсці. *С. грошы.* **2.** *што.* Ссунуць, сабраць у адно месца. *С. мэблю ў адзін пакой.* **3.** *перан., каго.* Прагнаць з пасады, службы. *С. з пасады старшыню.*

**СПЕ́РЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., сапрэ́цца; спёрся, спёрлася; *зак.* (разм.). Збіцца, стоўпіцца ў адным месцы. *С. ў адным пакоі.* ‖ *незак.* **спіра́цца**, -а́ецца.

**СПЕ́СЦІЦЦА**, спе́шчуся, спе́сцішся, спе́сціцца; *зак.* Стаць распешчаным, капрызным.

**СПЕ́СЦІЦЬ** *гл.* песціць.

**СПЕЎ**, спе́ву, *мн.* спе́вы, спе́ваў, *м.* **1.** *гл.* спяваць. **2.** Песня. *С. салаўя. За рэчкай чуліся спевы дзяўчат.* **3.** Выкананне песень, арый і пад. як мастацтва. *Высокі ўзровень харавых спеваў.* ‖ *прым.* **спе́ўны**, -ая, -ае.

**СПЕ́ЎКА**, -і, *ДМ* спе́ўцы, *мн.* -і, спе́вак, *ж.* Рэпетыцыя хору.

**СПЕ́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Зборнік твораў для спеву.

**СПЕХ**, -у, *м.* (разм.). Паспешлівасць, спешка. *У такой справе трэба без спеху.*

**СПЕЦ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). **1.** Назва спецыяліста — выхадца з інтэлігенцкага асяроддзя, якая ўжыв. ў першыя гады савецкай улады (уст.). **2.** Вельмі дасведчаны чалавек, майстар сваёй справы. *Ён у гэтай справе с.*

**СПЕЦ...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову «спецыяльны», напр.: *спецфонд, спецзаказ, спецпрадпрыемствы.*

**СПЕЦАДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* Тое, што і *спецвопратка.*

**СПЕЦВО́ПРАТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Спецыяльная вопратка, прызначаная для працы ў розных умовах. *Выдаць спецвопратку.*

**СПЕЦКА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: спецыяльны карэспандэнт. ‖ *прым.* **спецка́раўскі**, -ая, -ае.

**СПЕ́ЦЦА**, спяю́ся, спяе́шся, спяе́цца; спяёмся, спеяце́ся, спяю́цца; *зак.* **1.** Дасягнуць зладжанасці ў сумесным спеве. *Хору трэба яшчэ с.* **2.** *перан., з кім.* Дасягнуць поўнай згоды ў чым-н., адзінства ў поглядах, узгодненасці ў дзеяннях (разм.). *Яны ўжо даўно спеліся.* ‖ *незак.* **спява́цца**, -а́ецца.

**СПЕ́ЦЫІ**, -цый, *адз.* спе́цыя, -і, *ж.* Вострыя пахучыя прыправы (гарчыца, перац, лаўровы ліст і інш.). *Мяса са спецыямі.*

**СПЕЦЫ́ФІКА**, -і, *ДМ* -фіцы, *ж.* Сукупнасць адметных, спецыфічных асаблівасцей. *С. опернага мастацтва.*

**СПЕЦЫФІКА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). **1.** Вызначэнне і пералік спецыфічных асаблівасцей, удакладненая класіфікацыя чаго-н. **2.** Тэхнічны дакумент з пералікам дэталей і частак, а таксама ўказанні на іх колькасць і ўмовы прымянення.

**СПЕЦЫФІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Уласцівы, характэрны толькі дадзенаму прадмету; адметны, своеасаблівы. *С. смак.* ‖ *наз.* **спецыфі́чнасць**, -і, *ж.*

**СПЕЦЫЯЛІЗАВА́ЦЦА**, -зу́юся, -зу́ешся, -зу́ецца; -зу́йся; *зак.* і *незак., на чым, па чым, у чым.* **1.** Набыць (набываць) спецыяльныя веды, якую-н. спецыяльнасць. *С. па садаводстве.* **2.** Дзейнічаць, развівацца ў выразна акрэсленым кірунку; мець спецыяльнае прызначэнне. *С. па вытворчасці гадзіннікаў.* ‖ *наз.* **спецыяліза́цыя**, -і, *ж.*

**СПЕЦЫЯЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак.* **1.** *каго (што).* Даць (даваць) спецыяльныя веды ў якой-н. галіне навукі і тэхнікі, навучыць (навучаць) якой-н. спецыяльнасці. *С. студэнтаў па мовазнаўстве.* **2.** *што.* Прызначыць (прызначаць) для спецыяльнага выкарыстання або для работы ў якой-н. спецыяльнай галіне. *С. прадпрыемства на вытворчасці паперы.* ‖ *наз.* **спецыяліза́цыя**, -і, *ж.*

**СПЕЦЫЯЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які валодае якой-н. спецыяльнасцю, мае спецыяльныя веды ў якой-н. галіне навукі, тэхнікі, мастацтва. *С. па*

*сардэчных захворваннях.* ‖ *ж.* **спецыялістка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**СПЕЦЫЯ́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Асобная галіна навукі, тэхнікі, мастацтва; сфера чыёй-н. дзейнасці або вывучэння чаго-н. *Здаваць экзамен па спецыяльнасці.* **2.** Тое, што і *прафесія*, асноўная кваліфікацыя. *Сын мае с. музыканта. Працаваць па спецыяльнасці.*

**СПЕЦЫЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Асобы, які прызначаны выключна для якой-н. навукі, тэхнікі, мастацтва, уласцівы той або іншай спецыяльнасці. *Спецыяльная адукацыя. Спецыяльная тэрміналогія.*

**СПЕЦЬ**[1] *гл.* пець.

**СПЕЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., спе́е; *незак.* **1.** Рабіцца спелым (пра гародніну, злакі і пад.). *На полі спее ячмень.* **2.** *перан.* Прымаць закончаную форму; канчаткова складвацца. *У іх спелі новыя планы.* ‖ *зак.* **паспе́ць**, -е́е.

**СПЕ́ШВАЦЦА** *гл.* спешыцца.

**СПЕ́ШВАЦЬ** *гл.* спешыць.

**СПЕ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* Старанне зрабіць што-н. як мага хутчэй; паспешнасць. *Спешкі ў такой справе не можа быць.*

**СПЕ́ШНЫ**, -ая, -ае. Які патрабуе хуткага выканання; які нельга адкладваць; тэрміновы. *Спешная работа. Спешна* (прысл.) *сабрацца на сход. Спешнае заданне.* ‖ *наз.* **спе́шнасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**СПЕ́ШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *зак.* Злезці з каня. *Атрад спешыўся.* ‖ *незак.* **спе́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СПЕ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., каго.* Загадаць або прымусіць спешыцца. *С. коннікаў.* ‖ *незак.* **спе́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СПЁКА**, -і, *ДМ* спёцы, *ж.* Моцная гарачыня ў паветры, нагрэтым сонцам; спякота.

**СПЁРТЫ**, -ая, -ае. Пра паветра: душны, нясвежы. ‖ *наз.* **спёртасць**, -і, *ж.*

**СПІВА́ЦЦА** *гл.* спіцца.

**СПІВА́ЦЬ** *гл.* спіць.

**СПІДВЕ́Й**, -я, *м.* Від спорту — мотагонкі на спецыяльных (гаравым, земляным, травяным або ледзяным) трэках.

**СПІДО́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор-паказальнік хуткасці руху аўтамабіляў і пройдзенай адлегласці.

**СПІ́КЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Старшыня парламента ці (у парламентах некаторых краін) яго ніжняй палаты. ‖ *прым.* **спікерскі**, -ая, -ае.

**СПІКІ́РАВАЦЬ** *гл.* пікіраваць.

**СПІЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак., што.* **1.** Зрэзаць пілой. *С. бярозу. С. верхавіну дрэва.* **2.** Зраўняць напільнікам шурпатасці на чым-н.; апілаваць. ‖ *незак.* **спіло́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **спіло́ўванне**, -я, *н.*

**СПІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, спін, *ж.* Частка тулава ад шыі да крыжа. *Выпрастаць спіну.* ◊ **Гнуць спіну** — 1) многа і цяжка працаваць на каго-н.; 2) *перад кім* пакланяцца, угоднічаць. **За спінай вялікі вопыт работы** — у мінулым. **На ўласнай спіне зведаць** *што-н.* — на сваім вопыце. **Не разгінаючы спіны** — без адпачынку, старанна рабіць што-н. **Павярнуцца спінай** *да каго-, чаго-н.* — выказаць абыякавасць, знявагу, перастаць звяртаць увагу на каго-, што-н. **Рабіць** *што-н.* **за спінай** *у каго-н.* — без ведама каго-н. ‖ *памянш.* **спі́нка**, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **спінны́**, -а́я, -о́е. *Спінныя пазванкі. С. мозг* (у пазваночніку).

**СПІ́НІНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рыбалоўная снасць, якая складаецца з вудзільна, шпулькі з лёскай і блясны. ‖ *прым.* **спінінгавы**, -ая, -ае.

**СПІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* спіна. **2.** Апора для спіны ў крэсла, канапы і пад. *С. крэсла.* **3.** Частка адзення, якая закрывае спіну (спец.). *Выкраіць спінку.*

**СПІННАМАЗГАВЫ́**, -а́я, -о́е. Які мае адносіны да спіннога мозга. *Спіннамазгавыя нервы.*

**СПІННЫ́** *гл.* спіна.

**СПІРА́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Незамкнутая крывая лінія, якая ўтварае шэраг абаротаў вакол пункта на плоскасці або вакол восі. **2.** Дрот, спружына або іншы прадмет, звітыя, скручаныя па такой лініі. *С. для праса.* ‖ *памянш.* **спіра́лька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **спіра́льны**, -ая, -ае.

**СПІРА́ЦЦА** *гл.* сперціся.

**СПІРА́ЦЬ** *гл.* сперці[1].

**СПІРТ**, -у, *М* -рце, *мн.* спірты́, -о́ў, *м.* **1.** *адз.* Гаручая, з высокім працэнтам алкаголю вадкасць, якая атрымліваецца перагонкай некаторых прадуктаў, што змяшчаюць у сабе цукар і крухмал. *Вінны с.* **2.** Арганічнае злучэнне, вуглевадарод, у якім атам вадароду замешчаны водным астаткам (спец.). *Метылавы с. Драўняны с.* ‖ *прым.* **спіртавы́**, -а́я, -о́е *і* **спіртны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.). *Спіртавыя лакі. Спіртавое браджэнне.*

**СПІРТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *мн.* -і, -то́вак, *ж.* Спіртавы награвальны прыбор. ‖ *прым.* **спірто́вачны**, -ая, -ае.

**СПІРЫ́Т**, -а, *М* -ры́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца спірытызмам. ‖ *ж.* **спіры́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **спіры́цкі**, -ая, -ае.

**СПІРЫТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Містычная плынь, заснаваная на веры ў магчымасць непасрэдных зносін з душамі памёршых, а таксама самі зносіны пры дапамозе розных умоўных прыёмаў (вярчэнне сталоў, стукаў і пад.). ‖ *прым.* **спірыты́чны**, -ая, -ае. *С. сеанс.*

**СПІС**, -а, *мн.* спі́сы, -аў, *м.* **1.** Пісьмовы пералік каго-, чаго-н. *С. студэнтаў.* **2.** Рукапісная копія; перапісаны тэкст чаго-н. *Старажытныя спісы летапісу.* **3.** Дакумент, у якім пералічаны якія-н. звесткі. ○ **Паслужны спіс** — дакумент са звесткамі аб праходжанні службы. ‖ *прым.* **спі́сачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СПІСА́ЦЦА**, спішу́ся, спі́шашся, спі́шацца; спішы́ся; *зак.* **1.** Звязацца з кім-, чым-н. праз перапіску. *С. са сваімі аднакурснікамі.* **2.** У маракоў, авіятараў і пад.: звольніцца, выйсці ў запас (спец.). *С. з карабля.* **3.** Зрасходавацца пры пісьме; прыйсці ў непрыгоднасць (пра аловак, пяро і пад.). *Стрыжань спісаўся.* ‖ *незак.* **спі́свацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **спіса́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**СПІСА́ЦЬ**, спішу́, спі́шаш, спі́ша; спішы́; спі́саны; *зак.* **1.** *што.* Перапісаць з арыгінала што-н., зрабіць рукапісную копію чаго-н. *С. з дошкі сказы. С. вершы са зборніка паэзіі.* **2.** *што.* Паказаць (у жывапісе, літаратуры), выкарыстаўшы каго-, што-н. як прататып, натуру. *С. копію з карціны.* **3.** *што* і *з дадан.* Запісаць у спіс каго-, што-н. *С., колькі чаго патрэбна для паходу.* **4.** *што.* Дакументальна афармляючы, запісаць як зрасходаванае або непрыгоднае. *С. старое абсталяванне.* **5.** *што.* Запоўніць пісьмовымі знакамі да канца; зрасходаваць (сшытак, аркуш паперы і пад.). *С. усе старонкі ў сшытку.* **6.** *што.* Зрасходаваць на пісанне (разм.). *С. чарніла.* **7.** *перан., каго-што.* Спаласаваць, збіць (разм.). *С. ногі дубцом.* **8.** *каго-што.* У маракоў, авіятараў і пад.: звольніць, адправіць у запас (спец.). *С. на бераг.* ‖ *незак.* **спі́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **спі́сванне**, -я, *н.* (да 1—6 і 8 знач.) *і* **спіса́нне**, -я, *н.* (да 4 і 8 знач.).

**СПІ́ТКІ**, -аў (разм.). Недапітыя рэшткі чаго-н.

**СПІХА́ЦЬ**[1] *гл.* сапхнуць.

**СПІХА́ЦЬ**[2] *гл.* сапхаць.

**СПІХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* Тое, што і *сапхнуць.* ‖ *незак.* **спі́хваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **спі́хванне**, -я, *н.*

**СПІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, спіц, *ж.* **1.** Адзін з драўляных або металічных стрыжняў, які злучае калодку кола з вобадам. *У коле не хапае многа спіц.* **2.** Драўляны або металічны стрыжань рознага прызначэння. **3.** Плоскае выгнутае шыла для пляцення лапцей. **4.** Тонкі драцяны стрыжань для вязання. ◊ **Апошняя спіца ў калясніцы** (разм.) — 1) чалавек, які адыгрывае нязначную ролю ў жыцці, грамадстве, у якой-н. справе; 2) тое, што не мае вялікага значэння. ‖ *прым.* **спіцавы**, -ая, -ае.

**СПІ́ЦЦА**, сап'ю́ся, сап'е́шся, сап'е́цца; сап'ёмся, сап'яце́ся, сап'ю́цца; *зак.* (разм.). Стаць п'яніцам, п'яніцай. ‖ *незак.* **співа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СПІЦЬ**, сап'ю́, сап'е́ш, сап'е́; сап'ём, сап'яце́; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Адпіць верхнюю частку чаго-н. або з паверхні чаго-н. *С. вяршкі.* **2.** Выпіць. *Нашыя Базылі што не з'елі, то спілі* (прымаўка).

**СПІЧА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Верхняя завостраная частка чаго-н. *С. яліны.* **2.** Вузкая высокая надбудова пірамідальнай або канічнай формы на будынку; шпіль. *С. касцёла.* **3.** Плоскае выгнутае шыла для

*ца над франтонамі.* **2.** Знаходзіцца дзе-н. які-н. час, прыпыняцца. *Дома прыходзіцца рэдка с.* **3.** *перан.* Быць звязаным з чым-н.; мець адносіны да чаго-н. *Нашы інтарэсы стыкаюцца даволі часта.* ‖ *аднакр.* **стыкнýцца**, -нýся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -нýцца; -нíся.

**СТЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Чым-н. вострым пакалоць у многіх месцах, усюды. ‖ *незак.* **стыкваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СТЫКÓВАЧНЫ** *гл.* стыкаваць.

**СТЫКÓЎКА** *гл.* стыкаваць.

**СТЫЛІЗАВА́ЦЬ**, -зýю, -зýеш, -зýе; -зýй; -завáны; *зак.* і *незак., што.* Надаць (надаваць) чаму-н. прыкметы, рысы якога-н. стылю, выбранага за ўзор. *С. арнамент.* ‖ *наз.* **стылізáцыя**, -і, *ж.*

**СТЫЛІЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца стылізацыяй, выкарыстоўвае ў творчасці прыёмы стылізацыі. ‖ *прым.* **стылізáтарскі**, -ая, -ае.

**СТЫЛІЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* стылізаваць. **2.** Твор, якому нададзены характэрныя рысы пэўнага стылю. **3.** Выкарыстанне ўмоўных прыёмаў у мастацтве. *Арнаментальная с.*

**СТЫЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст, які распрацоўвае новы стыль у адзенні, прычосках, дызайне мэблі, інтэр'ера памяшкання, аўтамабіля і інш. *Паслугі стыліста.* ‖ *ж.* **стылíстыка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. **2.** Чалавек, які валодае майстэрствам літаратурнага стылю, піша добрым стылем.

**СТЫЛІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Раздзел мовазнаўства аб стылёвых разнавіднасцях мовы, яе вобразных сродках, заканамернасцях іх функцыянавання і ўменне выкарыстання. *Курс лекцый па стылістыцы.* **2.** Раздзел тэорыі літаратуры, які вывучае стылі мастацкіх твораў. **3.** Сукупнасць вобразных сродкаў мовы якога-н. мастацкага твора, пісьменніка, літаратурнай школы і пад. *С. ранніх твораў В.Быкава.* ‖ *прым.* **стылістычны**, -ая, -ае.

**СТЫЛЬ**[1], -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Сукупнасць характэрных рыс, блізкасць выразных мастацкіх прыёмаў і сродкаў, што абумоўліваюць сабой адзінства якога-н. напрамку ў творчасці. *Нацыянальны с. у жывапісе. Архітэктурныя стылі.* **2.** Метад, характар, сукупнасць прыёмаў якой-н. работы, дзейнасці, паводзін. *С. кіраўніцтва. Вольны с. плавання.* **3.** Сукупнасць прыёмаў выкарыстання моўных сродкаў для выказвання тых ці іншых ідэй, думак у розных умовах маўленчай практыкі. *С. Івана Мележа. Публіцыстычны с. Навуковы с.* ‖ *прым.* **стылістычны**, -ая, -ае *і* **стылявы́**, -áя, -óе. *Стылістычныя памылкі. Стылістычны прыём. Стылявыя катэгорыі. Стылявая дасканаласць.*

**СТЫЛЬ**[2], -ю, *м.* Спосаб летазлічэння. *Стары с.* (так зв. юліянскі каляндар). *Новы с.* (так зв. грыгарыянскі каляндар). *Першага студзеня па новым стылі.*

**СТЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Вытрыманы ў якім-н. пэўным стылі[1] (у 1 і 2 знач.). *Стыльнае плаванне.* **2.** Які вызначаецца індывідуальнасцю ў адзенні, паводзінах і да т.п. *Стыльная жанчына.* ‖ *наз.* **стыльнасць**, -і, *ж.*

**СТЫЛЯ́ГА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ля́зе, *Т* -ай (-аю), *ж. мн.* -і, -ля́г. Прадстаўнік маладзёжнай субкультуры, распаўсюджанай у СССР з канца 1940-х да пачатку 1960-х гг., які вылучаўся яркай знешнасцю, крыклівым адзеннем, асобым слэнгам, павышанай цікавасцю да замежнай музыкі і танцаў, што сурова асуджалася грамадствам (разм.). ‖ *прым.* **стыля́жны**, -ая, -ае.

**СТЫЛЯ́ЖНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Паводзіць сябе як стыляга. ‖ *наз.* **стыля́жніцтва**, -а, *н.*

**СТЫ́МУЛ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пабуджальная прычына, зацікаўленасць у ажыццяўленні чаго-н. *С. у працы. Матэрыяльныя стымулы.*

**СТЫМУЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лявáны; *зак.* і *незак., каго-што.* Даць (даваць) стымул у ажыццяўленні чаго-н., паскорыць (паскараць) або ўзмацніць (узмацняць) ажыццяўленне чаго-н. *С. развіццё прадпрымальніцтва.*

**СТЫМУЛЯ́ТАР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыроднае або сінтэтычнае рэчыва, якое стымулюе развіццё чаго-н., павышае працаздольнасць, паляпшае самаадчуванне і інш. *С. росту раслін.*

**СТЫМУЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Выкарыстанне стымулаў, стымулятараў.

**СТЫ́НУЦЬ** *гл.* стыць.

**СТЫПЕ́НДЫЯ**, -і, *мн.* -і, -дый, *ж.* Рэгулярная грашовая дапамога, якая выплачваецца навучэнцам вышэйшых і спецыяльных навучальных устаноў, аспірантам, дактарантам, а таксама спецыялістам рознымі фондамі. ○ **Імянная стыпендыя** — прысуджаецца за асаблівыя поспехі. ‖ *прым.* **стыпендыяльны**, -ая, -ае. *С. фонд.*

**СТЫПЕНДЫЯ́Т**, -а, *М* -я́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Навучэнец, які атрымлівае стыпендыю. **2.** Той, хто атрымлівае спецыяльную стыпендыю якога-н. фонду за асаблівыя дасягненні ў навуковай дзейнасці. ‖ *ж.* **стыпендыя́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **стыпендыя́цкі**, -ая, -ае.

**СТЫХА́Р**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Доўгае, з шырокімі рукавамі адзенне дыякана, дзяка, якое выкарыстоўваецца ў час набажэнства.

**СТЫХІ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Выкліканы дзеяннямі стыхійных сіл прыроды, якія непадуладны чалавеку. *Стыхійнае бедства* (паводка, ураган, землетрасенне і пад.). **2.** *перан.* Неарганізаваны, без кіраўніцтва. *С. мітынг.* ‖ *наз.* **стыхíйнасць**, -і, *ж.*

**СТЫХІ́Я**, -і, *мн.* -і, -хíй, *ж.* **1.** У антычнай натурфіласофіі: адзін з асноўных элементаў прыроды (агонь, вада, зямля, паветра). **2.** Магутныя сілы прыроды, якія непадуладныя чалавеку. *Разбуральная с.* **3.** *перан.* Неарганізаваная сіла, якая дзейнічае ў сацыяльным асяроддзі. *С. канкурэнцыі.* **4.** *перан.* Прывычнае акружэнне, кола любімых заняткаў, інтарэсаў. *Горы — с. альпіністаў.*

**СТЫЦЬ** *і* **СТЫ́НУЦЬ**, сты́ну, сты́неш, сты́не; стыў; стынь; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Аддаючы цяпло, рабіцца халодным. *Малако стыне.* **2.** Мерзнуць, замярзаць на холадзе. *С. на марозе. Рукі стынуць без пальчатак.* ‖ *зак.* **асты́ць** *і* **асты́нуць**, асты́ну, асты́неш, асты́не; асты́ў, асты́ла; асты́нь (да 1 знач.).

**СТЭАРЫ́Н**, -у, *м.* Паўпразрыстае арганічнае рэчыва, якое ідзе на выраб свечак, а таксама ўжываецца ў мылаварэнні і іншых галінах прамысловасці. ‖ *прым.* **стэары́навы**, -ая, -ае.

**СТЭК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Пругкі бізун, які выкарыстоўваецца пры верхавой яздзе. *Кавалерыйскі с.*

**СТЭЛА́Ж**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Рад паліц, размешчаных адна над адной. *Кніжныя стэлажы.* **2.** Прыстасаванне для захоўвання чаго-н. у вертыкальным становішчы. *Паставіць вёслы ў стэлажы.* ‖ *прым.* **стэлáжны**, -ая, -ае.

**СТЭ́ЛЬМАХ** *гл.* стальмах.

**СТЭНАГРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -рáм, *ж.* Стэнаграфічны запіс. ‖ *прым.* **стэнагрáмны**, -ая, -ае.

**СТЭНАГРАФАВА́ЦЬ**, -фýю, -фýеш, -фýе; -фýй; -фавáны; *незак., што.* Рабіць (зрабіць) стэнаграфічны запіс чаго-н. ‖ *зак.* **застэнаграфавáць**, -фýю, -фýеш, -фýе; -фýй; -фавáны. ‖ *наз.* **стэнаграфавáнне**, -я, *н.* ‖ *м.* **стэнóграф**, -а, *мн.* -ы, -аў *і* **стэнаграфíст**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў (уст.). ‖ **стэнаграфíстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.*

**СТЭНАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Спосаб хуткага запісу вуснай мовы пры дапамозе асобых знакаў. ‖ *прым.* **стэнаграфíчны**, -ая, -ае.

**СТЭНАКАРДЫ́Я**, -і, *ж.* Адна з форм ішэмічнай хваробы сэрца, захворванне сардэчных артэрый. ‖ *прым.* **стэнакардычны**, -ая, -ае.

**СТЭНД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Шчыт, стойка, на якія выстаўляюцца прадметы для азнаямлення. *Стэнды з кнігамі.* **2.** Спецыяльная ўстаноўка для зборкі і выпрабавання машын. *Кантрольна-праверачны с.* **3.** Спецыяльна абсталяванае месца для спартыўнай і вучэбнай стральбы шротам па мішэнях-талерачках. ‖ *прым.* **стэ́ндавы**, -ая, -ае.

**СТЭП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Бязлесная роўная прастора ў зоне сухога клімату з травяністай расліннасцю. ‖ *прым.* **стэ́павы**, -ая, -ае.

**СТЭПАВІ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* **1.** Жыхар стэпавай мясцовасці. **2.** Конь стэпавай пароды. ‖ *ж.* **стэпавíчка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (да 1 знач.). **3.** Стэпавая птушка.

**СТЭ́РЛІНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У выразе: **фунт стэрлінгаў** — грашовая адзінка Вялікабрытаніі, роўная 100 пенсам. ‖ *прым.* **стэ́рлінгавы**, -ая, -ае.

**СТЭРХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Белы журавель, які водзіцца ў тундры і лесатундры.

**СТЭРЫЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак.* **1.** *што.* Зрабіць (рабіць) стэрыльным, абеззаразіць (-ражваць). **2.** *каго-што.* Зрабіць (рабіць) нядзольным даваць патомства шляхам асобай аперацыі (спец.). ‖ *наз.* **стэрылізá́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **стэрылізацы́йны**, -ая, -ае.

**СТЭРЫЛІЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апарат для стэрылізацыі (*гл.* стэрылізаваць у 1 знач.).

**СТЭРЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Ачышчаны ад мікраарганізмаў, абеззаражаны. *Стэрыльная павязка.* **2.** Які стаў бясплодным у выніку стэрылізацыі. ‖ *наз.* **стэры́льнасць**, -і, *ж.*

**СТЭРЭА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які адносіцца да стэрэаскапічнага адлюстравання, напр.: *стэрэакіно, стэрэарэнтгенаграма;* 2) які адносіцца да стэрэафаніі, напр.: *стэрэагук, стэрэамагнітафон;* 3) які адносіцца да стэрэаметрыі, напр. *стэрэаабмер;* 4) які адносіцца да стэрэатыпіі, напр. *стэрэатыпограф.*

**СТЭРЭАМЕ́ТРЫЯ**, -і, *ж.* Раздзел геаметрыі, які вывучае фігуры, размешчаныя ў прасторы. ‖ *прым.* **стэрэаметры́чны**, -ая, -ае.

**СТЭРЭАСКАПІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* стэрэаскоп. **2.** Пра адлюстраванне: аб'ёмны, рэльефны (спец.). *С. дальнамер. С. фільм. Стэрэаскапічная кіназдымка.*

**СТЭРЭАСКО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аптычны прыбор, у якім два плоскія адлюстраванні прадмета зліваюцца ў адзін аб'ёмны малюнак. ‖ *прым.* **стэрэаскапі́чны**, -ая, -ае.

**СТЭРЭАТЫ́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Копія друкарскага набору, нанесеная на металічную, гумавую або пластмасавую пласцінку; ужыв. для шматтыражных і паўторных выданняў (спец.). *Літы с.* **2.** *перан.* Нязменны, агульнапрыняты ўзор чаго-н., якога прытрымліваюцца; стандарт, шаблон, трафарэт (кніжн.). *Дзейнічаць па стэрэатыпе.* ‖ *прым.* **стэрэаты́пны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Стэрэатыпная копія. Стэрэатыпнае выданне кнігі* (са стэрэатыпа).

**СТЭРЭАТЫ́ПІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Тэхніка вырабу стэрэатыпаў. ‖ *прым.* **стэрэатыпі́чны**, -ая, -ае.

**СТЭРЭАТЫ́ПНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* стэрэатып. **2.** Які часта паўтараецца ў нязменным выглядзе, шаблонны, трафарэтны (кніжн.). *Стэрэатыпныя выразы.* ‖ *наз.* **стэрэаты́пнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**СТЭРЭАФАНІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Перадача ці ўзнаўленне гуку, якія даюць магчымасць вызначыць напрамак гучання і размяшчэння крыніцы гуку ў прасторы. ‖ *прым.* **стэрэафані́чны**, -ая, -ае. *С. запіс. Стэрэафанічнае кіно.*

**СТЭТАСКАПІ́Я**, -і, *ж.* Праслухванне сэрца, лёгкіх пры дапамозе стэтаскопа. ‖ *прым.* **стэтаскапі́чны**, -ая, -ае.

**СТЭТАСКО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Медыцынскі інструмент у выглядзе трубкі для выслухвання сэрца і лёгкіх. ‖ *прым.* **стэтаско́пны**, -ая, -ае.

**СУ...**, *прыстаўка.* **1.** Ужыв. пры ўтварэнні назоўнікаў і абазначае: 1) сумеснасць, саўдзел, напр.: *сунаймальнік, суадказчык, сустаршыня;* 2) падабенства, напр.: *суглінак, супесак, сукравіца;* 3) сукупнасць, зборнасць, напр.: *суквецце, суплоддзе.* **2.** Ужыв. пры ўтварэнні прыметнікаў і абазначае: 1) суадноснасць пэўнай якасці паміж прадметамі, напр.: *суадносны, сугучны;* 2) зближэнне, супадзенне ў прасторы або ў часе, напр.: *сучасны, сумежны.* **3.** Ужыв. пры ўтварэнні дзеясловаў і абазначае сумеснасць, суправаджэнне або ўстанаўленне суадносін паміж чым-н., напр.: *сумясціць, суіснаваць, суаднесці.*

**СУАДНЕ́СЦІ**, -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; -нясём, -несяце́, -нясу́ць; суаднёс, -не́сла; -нясі́; -не́сены; *зак., што.* Выявіць, устанавіць суадносіны паміж чым-н.; супаставіць, параўнаць. *С. паказанні сведак. С. факты.* ‖ *незак.* **суадно́сіць**, -но́шу, -но́сіш, -но́сіць. ‖ *наз.* **суаднясе́нне**, -я, *н.*

**СУАДНЕ́СЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нясе́цца; *зак.* Быць суаднесеным, супастаўленым. *Гэтыя два паняцці суадносяцца паміж сабой.* ‖ *незак.* **суадно́сіцца**, -носіцца.

**СУАДНО́СІНЫ**, -сін. Узаемная сувязь, адносіны паміж чым-н. *С. паняццяў.*

**СУАДНО́СНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ў суадносінах з чым-н. *Суадносныя паняцці.* ‖ *наз.* **суадно́снасць**, -і, *ж.*

**СУАЙЧЫННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (кніжн.). Чалавек, які мае з кім-н. агульную айчыну. ‖ *ж.* **суайчы́нніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**СУА́ЎТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая сумесна з кім-н. з'яўляецца аўтарам літаратурнага навуковага твора, адкрыцця або вынаходства. *С. манаграфіі. С. сцэнарыя. С. праекта помніка.* ‖ *прым.* **суа́ўтарскі**, -ая, -ае.

**СУА́ЎТАРСТВА**, -а, *н.* Сумеснае аўтарства, работа некалькіх аўтараў.

**СУБ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) другаснасці, пабочнасці, падначаленасці, маласці ў параўнанні з тым, што названа ў базавай аснове, напр.: *субпадрад, субпадрадчык, субынспектар, субпрэфект, субарэнда, субпрадукты, субкантынент, субадзінка, субклетачны, субмікронны, суб'ядзерны;* 2) знаходжання каля чаго-н., пад чым-н., напр.: *субстратасфера, субальпійскі, субарктычны, субсветлавы.*

**СУБАРДЫНА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Сістэма строгага службовага падпарадкавання малодшых старшым. ‖ *прым.* **субардынацы́йны**, -ая, -ае.

**СУБ'Е́КТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У філасофіі: чалавек, які пазнае свет і супрацьстаіць яму як аб'екту пазнання. **2.** Чалавек як носьбіт якіх-н. уласцівасцей (кніжн.). **3.** Наогул чалавек (звычайна з адмоўнымі рысамі; разм.). *Хадзіў тут нейкі падазроны с.* **4.** У логіцы: прадмет суджэння. **5.** У граматыцы: семантычная катэгорыя са значэннем выканаўцы дзеяння або носьбіта стану. ○ **Суб'ект права** — фізічная або юрыдычная асоба як носьбіт юрыдычных правоў і абавязкаў (спец.). ‖ *прым.* **суб'е́ктны**, -ая, -ае (да 1, 4 і 5 знач.).

**СУБ'ЕКТЫВІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** У філасофіі: светапогляд, які адмаўляе аб'ектыўныя законы развіцця і сцвярджае галоўную ролю асобнага суб'екта ў працэсе пазнання і грамадскай дзейнасці. **2.** Асабістыя, суб'ектыўныя (у 2 знач.) адносіны да чаго-н. *С. у трактоўцы падзей.* ‖ *прым.* **суб'ектывісцкі**, -ая, -ае.

**СУБ'ЕКТЫВІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік суб'ектывізму (у 1 знач.). ‖ *прым.* **суб'ектыві́сцкі**, -ая, -ае.

**СУБ'ЕКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Уласцівы толькі гэтаму суб'екту, асобе. *Суб'ектыўнае адчуванне.* **2.** Прадузяты, пазбаўлены аб'ектыўнасці. *Суб'ектыўная ацэнка.* ‖ *наз.* **суб'екты́ўнасць**, -і, *ж.*

**СУБКУЛЬТУ́РА**, -ы, *ж.* Сукупнасць разнастайных поглядаў, маральных установак, стэрэатыпаў паводзін, якія звычайна супрацьстаяць прызнаным грамадскім нормам і характэрныя для нефармальных маладзёжных аб'яднанняў або іншых сацыяльных груп. *Сімвалы субкультур.* ‖ прым. **субкульту́рны**, -ая, -ае. *Субкультурнае асяроддзе.*

**СУБО́ТА**, -ы, *М* -бо́це, *мн.* -ы, -бо́т, *ж.* Шосты дзень тыдня, які папярэднічае нядзелі. ‖ *прым.* **субо́тні**, -ая, -ае.

**СУБО́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Добраахвотнае бясплатнае калектыўнае выкананне якой-н. грамадска-карыснай працы ў нерабочы час (па суботах).

**СУБРЭ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* У старажытных (першапачаткова французскіх) камедыях і вадэвілях: бойкая, вясёлая служанка, даверaная сваёй пані.

**СУБСІДЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго-што* (кніжн.). Выдаць (выдаваць) субсідыю. *С. будаўніцтва тэатра.*

**СУБСІ́ДЫЯ**, -і, *мн.* -і, -дый, *ж.* (кніжн.). Грашовая або натуральная дапамога, якую аказвае каму-н. установа. *Дзяржаўная с. школе.* ‖ *прым.* **субсідыя́рны**, -ая, -ае (спец.).

**СУБСТРА́Т**, -у, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Тое, што ляжыць у аснове якіх-н. утварэнняў, з'яў. *Мінеральныя глебы.* **2.** Пажыўнае асяроддзе, дзе развіваюцца якія-н. арганізмы. **3.** Элементы мовы папярэдняга насельніцтва дадзенай тэрыторыі, якія захаваліся ў мове прышэльцаў. *Кельцкі субстрат.* ‖ *прым.* **субстра́тны**, -ая, -ае.

**СУБСТА́НЦЫЯ**, -і, *ж.* У філасофіі: першааснова, сутнасць усіх рэчаў і з'яў. ‖ *прым.* **субстанцыяна́льны**, -ая, -ае *і* **субстанцыя́льны**, -ая, -ае.

**СУБСТЫТУ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Замяшчэнне аднаго іншым, звычайна падобным паводле ўласцівасцей, прызначэння, функцыі.

**СУБТРО́ПІКІ**, -аў. Зоны зямнога шара, якія ляжаць на поўнач і поўдзень ад тропікаў і набліжаюцца па клімаце да гарачага пояса. ‖ *прым.* **субтрапі́чны**, -ая, -ае. *С. пояс.*

**СУБЦІ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Надпіс на крайняй частцы кадра кіно, які звычайна з'яўляецца скарочаным перакладам іншамоўнага дыялогу (або тэксту наогул) на мову, зразумелую гледачу. ‖ *прым.* **субці́травы**, -ая, -ае.

**СУВЕНІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Памятны падарунак. **2.** Мастацкі выраб, рэч на памяць пра наведванне краіны, горада, музея і пад. *Аддзел сувеніраў.* ‖ *прым.* **сувені́рны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**СУВЕРЭНІТЭ́Т**, -у, *М* -тэ́це, *м.* Поўная незалежнасць дзяржавы ад іншых дзяржаў у яе ўнутраных справах і міжнароднай палітыцы. *Нацыянальны с.*

**СУВЕРЭ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які валодае суверэнітэтам. *Суверэнная дзяржава.* **2.** Які ажыццяўляе вярхоўную ўладу. *С. правіцель.* ‖ *наз.* **суверэ́ннасць**, -і, *ж.*

**СУВО́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Кусок палатна, скручаны ў трубку. ‖ *прым.* **суво́йны**, -ая, -ае.

**СУВО́РАВЕЦ**, -раўца, *мн.* -раўцы, -раўцаў, *м.* Выхаванец сувораўскага вучылішча. ‖ *прым.* **суво́раўскі**, -ая, -ае. ○ **Сувораўскае вучылішча** — спецыялізаваная сярэдняя ваенная навучальная ўстанова, якая рыхтуе выхаванцаў да паступлення ў вышэйшыя ваенныя вучылішчы.

**СУВО́РАЎСКІ**, -ая, -ае. Звязаны з імем А.В.Суворава — рускага палкаводца.

**СУВЫМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна змераць аднолькавай з чым-н. мерай; такі, які можна параўнаць. *Сувымерныя велічыні. Сувымерныя паняцці.* ‖ *наз.* **сувыме́рнасць**, -і, *ж.*

**СУВЯЗІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік сувязі (у 6 знач.), а таксама ваеннаслужачы войск сувязі. ‖ *ж.* **сувязі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**СУ́ВЯЗНЫ**, -ая, -ае. Які звязвае, аб'ядноўвае што-н. *Сувязнае звяно.*

**СУВЯЗНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які наладжвае і падтрымлівае сувязь з суседнімі воінскімі часцямі. *С. самалёт.* **2.** **сувязны́**, -о́га, *мн.* -ы́я, -ы́х, *м;* **сувязна́я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* Той, хто пасланы (ці каго пасылаюць) для падтрымання сувязі (у 5 знач.) паміж воінскімі часцямі, членамі канспіратыўнай арганізацыі. *Чакаць сувязнога на канспіратыўнай кватэры.*

**СУ́ВЯЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Адносіны ўзаемнай залежнасці, абумоўленасці, агульнасці паміж чым-н. *С. навукі з вытворчасцю. Прычынная с.* **2.** Цесныя зносіны паміж кім-, чым-н. *Гістарычныя сувязі народаў. Не траціць сувязей са школай.* **3.** Любоўныя сувязі, сужыццё. *Быць у сувязі з кім-н.* **4.** *мн.* Блізкае знаёмства з кім-н., якое дае магчымасць мець падтрымку, выгаду ў чым-н. *Мець сувязі ў медыцыне. Надзейныя сувязі.* **5.** Зносіны з кім-, чым-н., магчымасці такіх зносін, а таксама сродкі, пры дапамозе якіх ажыццяўляецца прыём і перадача інфармацыі. *С. з Мінскам. Тэлеграфная с. С. пры дапамозе спадарожніка Зямлі.* **6.** Сукупнасць устаноў, тэхнічных сродкаў і праграм, якія забяспечваюць зносіны на адлегласць (тэлефон, электронная пошта, тэлеграф і інш.). *Паштовае аддзяленне сувязі. Работнікі сувязі. Мабільная с.* ◊ **У сувязі з чым** — з прычыны чаго-н. *Спазнілася ў сувязі з дрэнным надвор'ем.*

**СУГЛІ́НАК**, -нку, *м.* Гліністая глеба са значнай колькасцю пяску. ‖ *прым.* **суглі́ністы**, -ая, -ае.

**СУГНЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (неадабр.). Пануры чалавек, нелюдзень.

**СУГРАМАДЗЯ́НЕ**, -дзя́н, *адз.* суграмадзя́нін, -а, *м.* (высок.). Грамадзяне адной краіны, суайчыннікі.

**СУГУ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які гучыць суладна, гарманічна (пра музычныя гукі). **2.** Які супадае, падобны па гучанні (пра словы, гукі мовы). **3.** *перан.* Які гарманіруе з чым-н. *Настрой с. з цудоўным надвор'ем.* ‖ *наз.* **сугу́чнасць**, -і, *ж.*

**СУГУ́ЧЧА**, -а, *н.* **1.** Спалучэнне некалькіх гукаў рознай вышыні. **2.** Рыфма, паўтарэнне ў вершы падобных галосных гукаў, а таксама падобнае гучанне канцоў радкоў у ім. *Удалае с.* **3.** Унутраная адпаведнасць, адзінства. *С. талентаў. С. колераў.*

**СУД**, -а́ *і* -у, *М* -дзе́ *і* -дзе, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** -а́, *М* -дзе́. Дзяржаўны орган, які разглядае і вырашае грамадзянскія спрэчкі і крымінальныя справы. *Народны с. Вярхоўны с.* **2.** -а́, *М* -дзе́. Судовы працэс, разбор грамадзянскай або крымінальнай справы. *Выступіць на судзе. Павестка на с.* **4.** -у, *М* -дзе. Думка, меркаванне аб чым-н. *С. гісторыі* (ацэнкі і думкі будучых пакаленняў; высок.). ‖ *прым.* **судо́вы**, -ая, -ае.

**СУДА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да суда, судовы, напр.: *судавыканаўца, судавядзенне, сударэвізійны.*

**СУДАВО́ДСТВА**, -а, *н.* Дзейнасць судовых органаў па разглядзе і вырашэнні грамадзянскіх і крымінальных спраў.

**СУДАГАВАРЭ́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Вуснае выкладанне справы на судовым пасяджэнні па грамадзянскім іску.

**СУДА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Прамысловая рыба сямейства акунёвых. ‖ *прым.* **суда́ковы**, -ая, -ае.

**СУДАКЛА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дадатковы даклад іншай асобы па якіх-н. пытаннях асноўнага дакладчыка.

**СУДАКЛА́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто выступае з судакладам. ‖ *ж.* **судакла́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**СУДДЗЯ́**, -і́, *мн.* су́ддзі *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) суддзі́, -яў, *м.* **1.** Службовая асоба ў органах суда, якая выносіць прыгавор па судовай справе. *Народны с.* **2.** Чалавек, які судзіць (у 1 знач.). *Я табе не с.* **3.** У спорце: той, хто судзіць якое-н. спаборніцтва, гульню. *С. міжнароднай катэгорыі.* ‖ *прым.* **судзе́йскі**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**СУ́ДЖАНАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* У вуснай народнай творчасці: нявеста.

**СУ́ДЖАНЫ**[1], -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* У вуснай народнай творчасці: жаніх. *Дзяўчаты горка плакалі, не прычакаўшы суджаных з вайны.*

**СУ́ДЖАНЫ**[2], -ая, -ае. Прызначаны лёсам. *Ён лічыў сябе шчаслівым, што ў с. час нарадзіўся на гэтай зямлі.*

**СУДЖЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** У логіцы: форма мыслення, якая ўяўляе сабой спалучэнне паняццяў, з якіх адно (суб'ект) вызначаецца праз другое (прэдыкат). **2.** Меркаванне, заключэнне аб чым-н., погляд на што-н. *Мець сваё с.*

**СУДЗЕ́ЙСКІ** *гл.* суддзя.

**СУДЗЕ́ЙСТВА**, -а, *н.* У спартыўных гульнях, спаборніцтвах: выкананне абавязкаў суддзі (у 3 знач.). *С. ў футболе.*

**СУДЗЕ́ЙСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* (спец.). Выконваць абавязкі суддзі (у 3 знач.).

**СУДЗІ́ЛІШЧА**, -а, *н.* **1.** (пагард.). Прадузяты разбор, падобны на суд. *Над ім устроілі цэлае с.* **2.** *кніжн.* Тое, што і *суд* (уст.).

**СУДЗІ́МАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* (спец.). Вынесены каму-н. судовы прыгавор за ўчыненае злачынства, а таксама прававы вынік, што дзейнічае пасля адбыцця пакарання. *Зняць с. Злачынец з некалькімі судзімасцямі.*

**СУДЗІ́ЦЦА**, суджу́ся, су́дзішся, су́дзіцца; *незак., з кім.* Мець з кім-н. грамадзянскую судовую справу, судовы разбор. *С. за маёмасць.*

**СУДЗІ́ЦЬ**, суджу́, су́дзіш, су́дзіць; су́джаны; *незак.* **1.** *аб кім-чым, пра каго-што, па кім-чым* і *без дап.* Рабіць вывад адносна каго-, чаго-н.; меркаваць пра каго-, што-н., думаць, разважаць. *С. аб літаратуры. С. пра каго-н. па рабоце.* **2.** *каго-што.* Разглядаць чыю-н. справу ў судовым парадку, а таксама ў таварыскім судзе. *С. злодзея.* **3.** *каго-што, пра каго-што.* Ацэньваць каго-, што-н., ганіць, дакараць у чым-н. *За добрую справу не судзяць.* **4.** *каго-што* і *без дап.* У спартыўных спаборніцтвах: сачыць за выкананнем правіл гульні і вырашаць спрэчныя пытанні. *С. футбольны матч.* **5.** (таксама *зак.*), *што каму* або *без дап.* Прадвызначаць (-ачыць) (пра што-н. непрадбачанае, што не залежыць ад волі чалавека). *Не судзіў лёс яму больш пажыць і зрабіць.* **6.** **судзі(це)** (звычайна са словамі «сам», «самі»). Ужыв. ў знач.: рашай (це). *Судзі сам, як далей пастопіць.*

**СУДКІ́**, -о́ў. Прыстасаванне для пераноскі ежы ў выглядзе некалькіх каструль, пастаўленых адна на адну і змацаваных

агульнай ручкай. *Абед у судках.* ‖ *прым.* **судко́вы**, -ая, -ае.

**СУ́ДНА**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Плавальнае збудаванне, прызначанае для транспартных, тэхнічных, навуковых і ваенных мэт. *Марское с. Гандлёвае с.* ‖ *прым.* **су́днавы**, -ая, -ае. *С. рухавік.*

**СУ́ДНА**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пасудзіна для спаражнення, якая даецца ляжачым хворым. ‖ *прым.* **су́днавы**, -ая, -ае.

**СУДНА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да суднаў[1], плывучых сродкаў, напр.: *суднаабарачэнне, суднаадпраўшчык, суднабудаўнік, суднабудаўнічы, суднавадзіцель, суднazборачны, судназборшчык, суднамеханік, суднапад'ёмны, суднапрамысловы, суднапрапускнік, суднапрапускны, суднарадыст, суднарамонт, суднарамонтны.*

**СУДНАБУДАВА́ННЕ**, -я, *н.* Тэорыя і практыка будаўніцтва суднаў[1]. ‖ *прым.* **суднабудаўні́чы**, -ая, -ае.

**СУДНАВАДЖЭ́ННЕ**, -я, *н.* Майстэрства ваджэння суднаў[1] пэўным курсам, а таксама сукупнасць адпаведных навуковых дысцыплін, звязаных з суднаваджэннем. ‖ *прым.* **суднавадзі́цельскі**, -ая, -ае.

**СУДНАВАДЗІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Спецыяліст па ваджэнні суднаў[1]. ‖ *прым.* **суднавадзі́цельскі**, -ая, -ае.

**СУДНАВЕ́РФ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Суднабудаўнічая верф. ‖ *прым.* **суднаве́рфавы**, -ая, -ае.

**СУ́ДНАВЫ** *гл.* судна[1].

**СУ́ДНА-ГОД**, -а, *М* су́дна-го́дзе, *мн.* су́дна-гады́, су́дна-гадо́ў, *м.* (спец.). Адзінка рабочага часу судна[1], якая вылічваецца работай, што выконваецца суднам[1] за адзін год плавання.

**СУДНАМАДЭЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Пабудова і запуск мадэлей суднаў[1]. ‖ *прым.* **суднамадэ́льны**, -ая, -ае.

**СУДНАМАДЭЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца суднамадэлізмам. ‖ *ж.* **суднамадэлі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і. ‖ *прым.* **суднамадэлі́сцкі**, -ая, -ае.

**СУДНАМАДЭ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Мадэль судна[1].

**СУДНАХО́ДНЫ**, -ая, -ае. Даступны або прызначаны для суднаходства. *Суднаходная рака.* ‖ *наз.* **суднахо́днасць**, -і, *ж.*

**СУ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Шафа для пасуды.

**СУДО́ВЫ** *гл.* суд.

**СУЖЫ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Чалавек, які жыве з кім-н. у адной кватэры (уст.). **2.** Мужчына, які знаходзіцца ў пазашлюбнай сувязі з якой-н. жанчынай; палюбоўнік. ‖ *ж.* **сужы́целька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек.

**СУЖЫЦЦЁ**, -я́, *н.* **1.** Сумеснае жыццё ў адной кватэры (уст.). **2.** Інтымныя, пазашлюбныя адносіны паміж мужчынам і жанчынай.

**СУЗДРО́М**, *прысл.* Зусім, цалкам, дашчэнту. *Ідэя будаўніцтва новай хаты с. завалодала бацькам.*

**СУЗІРА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто сузірае (у 1 знач.). ‖ *ж.* **сузіра́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**СУЗІРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Заняты толькі бяздзейным сузіраннем; пасіўны. *Сузіральная асоба.* **2.** Схільны да сузірання (у 2 знач.); уласцівы такому чалавеку. ‖ *наз.* **сузіра́льнасць**, -і, *ж.*

**СУЗІРА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* сузіраць. **2.** У філасофіі: працэс непасрэднага ўспрымання рэчаіснасці, пачатковая пачуццёвая ступень пазнання. *Ад жывога сузірання — да абстрактнага мыслення.*

**СУЗІРА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што* і *без дап.* **1.** Разглядваць, назіраць, пасіўна наглядаць. *С. прыроду.* **2.** Уяўляць у думках што-н., унікаць розумам у што-н. *С. пройдзены шлях жыцця.*

**СУЗО́Р'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Адзін з участкаў, на якія падзелена зорнае неба для зручнасці арыентацыі і абазначэння зорак; характэрныя фігуры, утвораныя яркімі зоркамі. *С. Вялікай Мядзведзіцы.* **2.** *перан.* Група выдатных дзеячаў, пісьменнікаў і пад., якія працуюць у адну эпоху. *С. талентаў.*

**СУІСНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; *незак.* Існаваць адначасова ці сумесна з кім-, чым-н. ‖ *наз.* **суіснава́нне**, -я, *н.*

**СУК**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Буйны бакавы адростак, які ідзе ад ствала дрэва. *Абсячы сухія сукі бярозы.* **2.** У дошцы, бервяне: астатак ад зрэзанага бакавога парастка ствала. *Бервяно з сукамі.*

**СУ́КА**, -і, *ДМ* су́цы, *мн.* -і, сук, *ж.* **1.** Самка сабакі, а таксама іншых жывёлін сямейства сабачых. **2.** (груб.). Ужываецца як лаянкавае слова. ‖ *памянш.* **су́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**СУКАВА́ТЫ**, -ая, -ае. З вялікай колькасцю сукоў. *Сукаватая дошка.* ‖ *наз.* **сукава́тасць**, -і, *ж.*

**СУКА́ЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Прылада для насуквання нітак на цэўкі. ‖ *прым.* **сука́льны**, -ая, -ае.

**СУ́КАРАТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Скручанае месца ніткі, вяроўкі. *Нітка пайшла ў сукараткі.*

**СУКА́ЦЬ**, сучу́, су́чаш, су́ча; су́каны; *незак., што.* **1.** Звіваць некалькі нітак у адну. *С. дратву.* **2.** *чым.* Перабіраць, матляць нагамі (пра малых дзяцей). *Хлопчык суча ножкамі.* ‖ *зак.* **ссука́ць**, ссучу́, ссу́чаш, ссу́ча; ссука́ны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **сука́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **сука́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Сукальная машына.*

**СУКВЕ́ЦЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Верхняя частка сцябла з кветкамі, сабранымі ў выглядзе парасоніка, мяцёлкі і пад. *Простае с.*

**СУКЕ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Жаночае суцэльнае адзенне, верхняя частка якога адпавядае кофце, а ніжняя — спадніцы. *Модная с.*

**СУКНАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які прызначаны служыць для валення сукнаў. *Сукнавальная машына.*

**СУКНАВА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Майстэрня, дзе валяць сукны.

**СУКНО́**, -а, *мн.* су́кны, -аў, *н.* Шарсцяная або паўшарсцяная тканіна з гладкім ворсам. ◊ **Класці (палажыць) пад сукно** *што* (разм., неадабр.) — адкладваць, адцягваць рашэнне якой-н. справы, не даваць ходу чаму-н. ‖ *прым.* **суко́нны**, -ая, -ае. *Суконная тканіна. Суконная фабрыка.* ◊ **Суконная мова** (разм., неадабр.) — невыразная, грубая.

**СУКО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Абрэзак сукна або іншай шарсцяной тканіны, якая ўжываецца для чысткі, націрання чаго-н. *Пачысціць чаравікі суконкай.*

**СУКО́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па вырабе сукнаў. **2.** Гандляр сукном або ўладальнік суконнай фабрыкі (уст.).

**СУ́КРАВІЦА**, -ы, *ж.* Жаўтаватая вадкасць з дамешкам крыві, якая выдзяляецца з пашкоджаных тканак. ‖ *прым.* **су́кравічны**, -ая, -ае.

**СУКУ́ПНАСЦЬ**, -і, *ж.* Спалучэнне, агульная колькасць, сума чаго-н. *С. прадметаў, фактаў.*

**СУКУ́ПНЫ**, -ая, -ае. Аб'яднаны, сумесны, агульны. *Сукупныя намаганні.* ○ **Сукупны грамадскі прадукт** — матэрыяльныя даброты, створаныя грамадствам за пэўны перыяд.

**СУЛА́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** *з чым, чаму.* Адпаведны чаму-н., згодны з кім-н. *Быць суладным з законам. Суладныя рашэнні камісіі.* **2.** Зладжаны, гарманічны, дружны. *На вечарыне гучалі суладныя песні.* ‖ *наз.* **сула́днасць**, -і, *ж.*

**СУЛЕМА́**, -ы́, *ж.* Ядавіты белы парашок хлорыстай ртуці, ужываецца як сродак для дэзінфекцыі. ‖ *прым.* **сулемо́вы**, -ая, -ае.

**СУЛТА́Н**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спадчынны тытул манархаў у некаторых мусульманскіх краінах Усходу, а таксама асоба, якая носіць гэты тытул. ‖ *прым.* **султа́нскі**, -ая, -ае.

**СУЛТА́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Упрыгажэнне з пер'я ці конскіх валасоў на галаўных уборах, пераважна ў ваенных, а таксама на галовах коней пры ўрачыстых цырымоніях. **2.** *перан.* Слуп дыму, зямлі і пад., які ўзнімаецца ўгору. *С. узрыву. С. пары.* **3.** Суквецце ў некаторых раслін. *С. бэзу. С. іван-чаю. Султаны чароту.* ‖ *памянш.* **султа́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**СУЛТАНА́Т**, -а, *М* -на́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Манархічная дзяржава, якая ўзначальваецца султанам[1]. ‖ *прым.* **султана́цкі**, -ая, -ае.

**СУЛЬФА́ТЫ**, -аў, *адз.* сульфа́т, -у, *М* -фа́це, *м.* (спец.). Солі сернай кіслаты. ‖ *прым.* **сульфа́тны**, -ая, -ае.

**СУЛЬФІ́ДЫ**, -аў, *адз.* сульфі́д, *М* -фі́дзе, *м.* (спец.). Хімічныя злучэнні серы з металамі і некаторымі неметаламі. *Пры-*

*родныя с. Арганічныя с.* ‖ *прым.* **сульфідны**, -ая, -ае. *Сульфідныя руды.*

**СУМ**, -у, *м.* **1.** Пачуццё смутку, жалю, журбы. *У матчыным голасе чуўся с.* **2.** Душэўны неспакой, туга. *Апусцелыя палі і лугі навявалі с.*

**СУ́МА**, -ы, *мн.* -ы, сум, *ж.* **1.** Вынік складання дзвюх або некалькіх велічынь. **2.** Агульная колькасць чаго-н. *С. ведаў.* **3.** Пэўная колькасць грошай. *Атрымаць значную суму грошай.* ◊ **Кругленькая сума** (разм.) — пра вялікія грошы. ‖ *прым.* **су́мавы**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.).

**СУМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; *незак.* **1.** Знаходзіцца ў стане суму. *Недзе далёка сумуе гаротная матка.* **2.** *па кім-чым.* Адчуваць душэўны неспакой; журыцца, тужыць. *С. па сыне. С. па рабоце. Летам у вёсцы с. няма калі.*

**СУМА́РНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які з'яўляецца сумай чаго-н., атрыманы ў выніку складання. *Сумарныя паказчыкі.* **2.** *перан.* Абагульнены, неканкрэтызаваны агляд падзей. ‖ *наз.* **сума́рнасць**, -і, *ж.*

**СУ́МАЧНЫ** *гл.* сумка.

**СУМБУ́Р**, -у, *м.* Поўная неразбярыха, адсутнасць парадку, блытаніна. *У справах панаваў с. С. у галаве.*

**СУМБУ́РНЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены парадку; блытаны, хаатычны. *Сумбурнае паведамленне.* ‖ *наз.* **сумбу́рнасць**, -і, *ж.*

**СУМЕ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца непасрэдна побач; суседні; цесна звязаны з чым-н., блізкі. *С. ўчастак бульбы. Сумежныя галіны навукі.* ‖ *наз.* **суме́жнасць**, -і, *ж.*

**СУМЕ́СНЫ**, -ая, -ае. Які ажыццяўляецца разам; агульны. *Сумесная апрацоўка зямлі. Сумесна* (прысл.) *абмеркаваць план.* ‖ *наз.* **суме́снасць**, -і, *ж.*

**СУ́МЕСЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Спалучэнне чаго-н. рознага, разнароднага. *С. араматаў. С. розных гатункаў вішні.* **2.** Мешаніна розных рэчываў, прадметаў. *С. пяску і гліны.* ‖ *прым.* **су́месевы**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.). *Сумесевая пража.*

**СУМЕ́ЦЦА**, -е́юся, -е́ешся, -е́ецца; суме́ўся, -ме́лася; *зак.* Збянтэжыцца; разгубіцца. *С. ад нечаканасці.*

**СУМЁТ**, -а, *М* -мёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Намеценая ветрам гурба снегу.

**СУ́МКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* **1.** Выраб са скуры, тканіны і пад., прызначаны для нашэння чаго-н.; торба. *Прадуктовая с. С. для гародніны.* **2.** У некаторых жывёл: поласць, складка скуры на жываце мацеры, дзе даношваецца і развіваецца дзіцяня. *С. кенгуру.* **3.** У анатоміі: орган, які мае выгляд полага мяшэчка са злучальнай тканкі (спец.). *Сардэчная с.* ‖ *памянш.* **су́мачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (да 1 знач.). ‖ *прым.* **су́мачны**, -ая, -ае.

**СУМЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* Пачуццё маральнай адказнасці за свае паводзіны, учынкі і інш. *С. ў яго крыштальна чыстае.* ◊ **Са спакойным сумленнем рабіць што-н.** — будучы ўпэўненым у правільнасці сваіх учынкаў, дзеянняў. **Сумленне загаварыла** — стала сорамна. **Як сумленне падказвае** — як трэба.

**СУМЛЕ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які валодае высокімі маральнымі якасцямі, пачуццём адказнасці перад іншымі. *С. працаўнік.* **2.** Бездакорны ва ўсіх адносінах. *Сумленнае імя.* ‖ *наз.* **сумле́ннасць**, -і, *ж.*

**СУМНЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Няўпэўненасць у праўдзівасці чаго-н., адсутнасць веры ў каго-, што-н. *Няма сумнення, што ўраджай будзе добры.* **2.** Замінка, непаразуменне, што ўзнікае ў працэсе вырашэння якога-н. пытання. *Узнікае с. наконт тэрміну завяршэння будаўніцтва.*

**СУМНО́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У матэматыцы: адзін з некалькіх множнікаў, якія ўваходзяць у адзін здабытак.

**СУ́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адчувае сум, смутак; маркотны, а таксама які выражае сум, смутак. *С. чалавек. Сумныя вочы. Мне сумна* (у знач. вык.). **2.** Які мае ў сабе што-н. сумнае, поўны суму. *Сумнае апавяданне. У казцы многа сумнага* (наз.). **3.** Які выклікае, наводзіць сум, смутак. *Сумная дарога.* ‖ *наз.* **су́мнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**СУМНЯВА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* Адчуваць няўпэўненасць, сумненне адносна каго-, чаго-н. *С. ў вывадах камісіі. Не сумнявайцеся, не падвяду.*

**СУ́МЧАТЫ**, -ая, -ае. Які мае сумку (у 2 знач.). *Сумчатыя жывёлы.*

**СУМЫ́СНА**, *прысл.* Знарок, наўмысна. *С. не прыдумаеш такую гісторыю.*

**СУМЯСЦІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ме́сціцца; *зак.* **1.** Супасці ўсімі пунктамі пры накладанні (пра лініі, фігуры). *Два трохвугольнікі сумясціліся.* **2.** Аказацца адначасова, сумесна існуючым у кім-, чым-н. *У характары гэтага чалавека сумясціліся самыя розныя рысы.* ‖ *наз.* **сумяшчэ́нне**, -я, *н.*

**СУМЯСЦІ́ЦЬ**, -мяшчу́, -ме́сціш, -ме́сціць; суме́шчаны; *зак., што.* **1.** Спалучыць, злучыць разам. *С. работу з вучобай. Нельга с. несумяшчальнае.* **2.** Налажыць адно на адно (пра лініі, геаметрычныя фігуры). *С. сіметрычныя фігуры.* ‖ *незак.* **сумяшча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **сумяшчэ́нне**, -я, *н. С. прафесій* (у аднаго работніка).

**СУМЯТЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Залішне мітуслівы, схільны мітусіцца. *С. чалавек.* **2.** Поўны мітусні, клопатаў. *С. месяц.* ‖ *наз.* **сумятлі́васць**, -і, *ж.*

**СУМЯТНЯ́**, -і́, *ж.* Бязладная беганіна, клопаты, мітусня. *Цэлы дзень с. Паднялася страшэнная с.*

**СУМЯШЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можна сумясціць з чым-н. *Сумяшчальныя паняцці.* ‖ *наз.* **сумяшча́льнасць**, -і, *ж.*

**СУМЯШЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Службовая асоба, якая працуе па сумяшчальніцтве. ‖ *ж.* **сумяшча́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **сумяшча́льніцкі**, -ая, -ае.

**СУМЯШЧА́ЛЬНІЦТВА**, -а, *н.* Выкананне работы на якой-н. платнай пасадзе адначасова з асноўнай работай. *Дазволіць с. на палову стаўкі.*

**СУМЯШЧА́ЦЦА** *гл.* сумясціцца.

**СУМЯШЧА́ЦЬ** *гл.* сумясціць.

**СУНІМА́ЦЦА** *гл.* суняцца.

**СУНІМА́ЦЬ** *гл.* суняць.

**СУНІ́ЦЫ**, -ніц, *адз.* суніца, -ы, *ж.* Шматгадовая ягадная расліна з белымі кветкамі, пахучымі чырвонымі ягадамі, а таксама ягады гэтай расліны. *Лясныя с.* ‖ *прым.* **суні́чны**, -ая, -ае.

**СУНІ́ЧНІК**, -у, *м., зб.* Кусцікі сунічнага ягадніку.

**СУ́НУЦЦА**[1], -нуся, -нешся, -нецца; су́нься; *зак.* (разм.). Кінуцца, палезці куды-н., паспрабаваць зрабіць што-н. *Сунуўся ў дзверы, ды назад. С. ў бойку хлопцы не адважыліся.* ◊ **Сунуцца з (сваім) носам** (разм., неадабр.) — умешвацца не ў сваю справу. ‖ *незак.* **со́вацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СУ́НУЦЦА**[2], -нуся, -нешся, -нецца; су́нься; *незак.* (разм.). **1.** Вельмі павольна рухацца. *Калёсы ледзь сунуліся па гразі. Па небе сунуліся дажджавыя хмары.* **2.** Перамяшчацца, перасоўвацца, спаўзаць куды-н. *Пласт саломы паволі сунуўся з воза.*

**СУ́НУЦЬ**[1], -ну, -неш, -не; сунь; су́нуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Усунуць, укласці ўсярэдзіну чаго-н., пад што-н., пакласці куды-н. спехам. *С. палена ў агонь. С. ногі ў валёнкі.* **2.** Даць што-н. спяшаючыся, нядбайна, нехайна. *С. граблі ў рукі.* **3.** *перан., каго-што* і *без дап.* **4.** *што* і *без дап.* Груба ўдарыць, стукнуць (разм.). *С. нажом у бок.* **5.** *што* і *без дап.* Паказаць што-н. са злосцю, з незадавальненнем; тыцнуць. *С. пропуск вахцёру.* ◊ **Сунуць у лапу** — даць хабар. ‖ *незак.* **со́ваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СУ́НУЦЬ**[2], -ну, -неш, -не; сунь; *незак., каго-што.* Перамяшчаць, перасоўваць з месца на месца. *С. шафу па падлозе.* ‖ *незак.* **со́ваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СУНЯ́ЦЦА**, суніму́ся, суні́мешся, суні́мецца; суніміся; *зак.* **1.** Перастаць шумець, крычаць і пад.; супакоіцца. *Дзеці суняліся і леглі спаць.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Спыніцца, перастаць дзейнічаць. *Вечарам дождж суняўся. На душы не сунімаецца трывога* (непакоіць, турбуе). **3.** Перастаць рухацца; спыніць рух, ход. *Мапеды звярнулі ў лес і суняліся.* ‖ *незак.* **суніма́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СУНЯ́ЦЬ**, суніму́, суні́меш, суні́ме; суні́мі; суня́ты; *зак.* **1.** *што.* Супакоіць, спыніць. *С. слёзы. С. кроў.* **2.** *што.* Стрымаць рух, праяўленне чаго-н. *С. каня. С. натоўп.* **3.** *каго (што).* Угаманіць, прымусіць супакоіцца. *С. дзяцей.* **4.** *перан., што.* Аслабіць, прыглушыць якое-н. пачуццё. *С. гнеў.* ‖ *незак.* **суніма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СУП**, -у, *мн.* супы́, -о́ў, *м.* Вадкая страва — адвар з мяса, рыбы, гародніны з дабаўленнем круп, розных прыпраў і інш. *Рыбны с. Малочны с.* ‖ *прым.* **супавы́**, -а́я, -о́е.

**СУПАДА́ЦЬ** *гл.* супасці.

**СУПАДПАРА́ДКАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны; *зак., каго-што* (кніжн.). Адначасова, на роўных падста-

вах падпарадкаваць многіх каму-, чаму-н. *Супадпарадкаваныя даданыя сказы.* ‖ *незак.* **супадпарадкóўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **супадпара́дкаванне**, -я, *н.*

**СУПАКÓЕНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Стан спакою, задаволенасці, сцішанасці. **2.** Страта актыўнасці, задаволенасць дасягнутым. *Неапраўданая с.*

**СУПАКÓІЦЦА**, -кóюся, -кóішся, -кóіцца; *зак.* **1.** Стаць спакойным, не хвалявацца; перастаць шумець, пачаць весці сябе ціха. *С. пасля стрэсу. Дзеці супакоіліся позна.* **2.** Задаволіцца дасягнутым, зробленым, перастаць турбавацца. *С. думаць пра кар'еру.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Аслабіць праяўленне чаго-н.; сціхнуць. *Зуб пад раніцу супакоіўся.* **4.** Стаць спакойным, нерухомым. *Мора супакоілася.* ‖ *незак.* **супакóйвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **супакае́нне**, -я, *н.*

**СУПАКÓІЦЬ**, -кóю, -кóіш, -кóіць; -кóены; *зак.* **1.** *каго-што.* Прывесці каго-, што-н. у стан спакою; прымусіць весці сябе ціха; утаймаваць. *С. вучняў. С. сабаку. С. душу маці.* **2.** *што.* Змякчыць, зрабіць менш інтэнсіўным, паменшыць. *С. зубны боль.* ‖ *незак.* **супакóйваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **супакóйванне**, -я, *н.* і **супакае́нне**, -я, *н.*

**СУПАКÓЙЛІВЫ**, -ая, -ае. Які спрыяе супакаенню. *С. шум бору.* ‖ *наз.* **супакóйлівасць**, -і, *ж.*

**СУ́ПАРТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Рухомы вузел металарэзных і дрэваапрацоўчых станкоў з разцом. ‖ *прым.* **су́партны**, -ая, -ае.

**СУПАСТА́ВІЦЬ**, -стáўлю, -стáвіш, -стáвіць; -стáўлены; *зак., каго-што.* Параўноўваючы, суаднесці адзін з адным для атрымання якога-н. вываду. *С. паказанні сведак.* ‖ *незак.* **супастаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **супастаўле́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **супастаўля́льны**, -ая, -ае. *С. метад даследавання. С. аналіз.*

**СУПАСТА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Такі, які можа быць супастаўлены з чым-н. *Супастаўныя паняцці.* ‖ *наз.* **супастáўнасць**, -і, *ж.*

**СУПА́СЦІ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -падзе́; супáў, -пáла; *зак., з чым.* **1.** Адбыцца адначасова з чым-н. *Водпуск супаў з выпускнымі экзаменамі сына.* **2.** Аказацца агульным, тоесным. *Паказанні сведак поўнасцю супалі.* **3.** У геаметрыі: сумясціцца ўсімі пунктамі пры накладванні. ‖ *незак.* **супада́ць**, -áе. ‖ *наз.* **супадзе́нне**, -я, *н.*

**СУПЕР...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая ўтварае: 1) назоўнікі са знач. павышанасці якасці або ўзмацнення дзеяння, напр.: *супертанкер, суперцэмент, суперэкспрэс;* 2) назоўнікі са знач.: які знаходзіцца на паверхні чаго-н., напр.: *супервокладка, суперінфекцыя;* 3) прыметнікі са знач. высокай ступені прыкметы, напр.: *суперсучасны, супермодны, суперэластычны.*

**СУПЕРВÓКЛАДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* (спец.). Папяровая вокладка, што агортвае пераплёт кнігі.

**СУПЕРМЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Герой, надзелены нязвыклымі якасцямі, якія робяць яго непераможным, чароўнаабаяльным. **2.** (іран.). Чалавек, які лічыць сябе вышэйшым, важнейшым за іншых. ‖ *прым.* **суперме́нскі**, -ая, -ае (разм.).

**СУПЕРФАСФА́Т**, -у, *М* -фáце, *м.* Хімічнае ўгнаенне, у саставе якога знаходзіцца фосфар. ‖ *прым.* **суперфасфáтны**, -ая, -ае.

**СУ́ПЕСАК**, -ску, *м.* Асадкавая пясчанагліністая горная парода, а таксама рыхлая глеба, якая змяшчае ў сабе пясок (пераважна) і гліну. ‖ *прым.* **су́пескавы**, -ая, -ае і **супясчáны**, -ая, -ае.

**СУПІНА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Тоўстая вусцілка з патаўшчэннем пад сярэдняй часткай ступні. ‖ *прым.* **супінáтарны**, -ая, -ае.

**СУПЛÓДДЗЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (спец.). Некалькі пладоў, якія развіліся з асобных кветак суквецця і зрасліся, уяўляючы нібы адзін плод. *С. ананаса.*

**СУ́ПНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Сталовая пасудзіна, з якой суп разліваецца па талерках.

**СУПÓЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Аб'яднанне людзей, якія маюць агульныя мэты і задачы. *С. «Загляне сонца і ў наша аконца» выдавала кніжкі і навукова-папулярныя брашуры.* **2.** *разм.* Наогул якая-н. група, аб'яднанне, арганізацыя.

**СУПÓЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* Адзінства, непарыўнасць. *С. славянскіх народаў.*

**СУПÓЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Таварыш па сумеснай дзейнасці, паплечнік, аднадумец; кампаньён. **2.** Саўдзельнік, хаўруснік у якіх-н. злачынных справах. ‖ *ж.* **супóльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **супóльніцкі**, -ая, -ае.

**СУПÓЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Сумесны, агульны, які ў аднолькавай меры належыць усім. *Супольная паша.* **2.** Які ажыццяўляецца сумесна з кім-н. *Супольнае падарожжа. Супольна* (прысл.) *працаваць.* **3.** Аднолькавы з кім-н., уласцівы каму-н. адначасова з іншымі. *Супольныя імкненні. Супольныя інтарэсы.*

**СУПÓНІЦЬ** *гл.* засупоніць.

**СУПÓНЯ**, -і, *мн.* -і, -няў, *ж.* Раменьчык для сцягвання клешчаў хамута.

**СУПРАВАДЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які служыць для суправаджэння чаго-н. (звестак, справаздач і пад.), калі дасылаецца адначасова з кім-, чым-н. *С. ліст.* **2.** Які суправаджае што-н. *Суправаджальныя акалічнасці. С. акампанемент.*

**СУПРАВАДЖА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *незак., чым.* **1.** Адбывацца адначасова з чым-н. *Навальніца суправаджалася градам.* **2.** Мець сваім вынікам што-н. *Хвароба суправаджалася ўскладненнем.* **3.** Быць забяспечаным чым-н., дапаўняцца чым-н. *С. каментарыямі.*

**СУПРАВАДЖА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *каго-што.* Ісці, ехаць разам з кім-н. у якасці спадарожніка, праваднікá, перакладчыка, аховы і пад. *С. турыстаў на экскурсіі. С. дэлегацыю.* **2.** *што.* Адбывацца, рабіць адначасова з чым-н., спадарожнічаць чаму-н. *С. гаворку жэстамі.* **3.** *што чым.* Служыць дапаўненнем да чаго-н. *С. даклад дэманстрацыяй фільма.* ‖ *зак.* **суправадзі́ць**, -ваджу́, -вóдзіш, -вóдзіць. ‖ *наз.* **суправаджэ́нне**, -я, *н.*

**СУПРАМА́Т**, -у, *М* -мáце, *м.* (разм.). Скарачэнне: супраціўленне матэрыялаў (назва навукі). *Вучэбны курс супрамату.* ‖ *прым.* **супрамáцкі** -ая, -ае і **супрамáтаўскі**, -ая, -ае.

**СУПРАЦІЎЛЯ́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* Здольнасць супраціўляцца, ступень супраціўлення. *С. арганізма хваробам.*

**СУПРАЦІЎЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак., каму-чаму.* Супрацьдзейнічаць уздзеянню каго-, чаго-н., насіллю, нападзенню і інш. *С. ворагу. С. хваробе.* ‖ *наз.* **супраціўле́нне**, -я, *н.*

**СУПРАЦÓЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які працуе разам з кім-н. *Супрацоўнікі аддзела.* **2.** Назва работнікаў некаторых спецыяльнасцей, а таксама ўвогуле служачых. *С. музея. С. часопіса. Літаратурны с.* ○ **Навуковы супрацоўнік** — пасада супрацоўніка навукова-даследчай установы; асоба, якая займае гэтую пасаду. ‖ *ж.* **супрацóўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **супрацóўніцкі**, -ая, -ае.

**СУПРАЦÓЎНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Працаваць сумесна з кім-н., удзельнічаць у агульнай справе. **2.** Быць супрацоўнікам (у 2 знач.). *С. у газеце.* ‖ *наз.* **супрацóўніцтва**, -а, *н.*

**СУ́ПРАЦЬ** і **СУПРÓЦЬ**, *прысл.* і *прыназ.* **1.** *прысл.* На процілеглым баку ад каго-, чаго-н., прама перад кім-, чым-н. *Па левым баку вуліцы знаходзіцца Дом кнігі, а с. — Палац спорту. Сядзець с.* **2.** *прысл.* Наперакор, насуперак каму-, чаму-н. *Галасаваць с.* **3.** *каго-чаго, прыназ. з Р.* Указвае на прадмет або асобу, перад якімі на процілеглым баку хто-, што-н. знаходзіцца. *Музей стаіць с. школы. Старыя сядзелі на лавачцы пад клёнам с. іх хаты. Стаяць адзін с. аднаго.* **4.** *чаго, прыназ. з Р.* Насустрач руху чаго-н. *Ісці с. ветру. Плысці с. цячэння.* **5.** *каго-чаго, прыназ. з Р.* Для барацьбы з кім-, чым-н. *Лякарства с. грыпу. Сродак с. камароў і маскітаў.* **6.** *чаго, прыназ. з Р.* Ужыв. для ўказання на тэрмін, адрэзак часу, перад якім што-н. адбываецца ці павінна адбыцца. *С. ночы ехаць нельга.* **7.** *каго-чаго, прыназ. з Р.* Ужыв. для выражэння параўнальных адносін. *Рост прадукцыйнасці працы с. мінулага года.* **8.** *у знач. вык.* Не згодзен (разм.). *Ты згодзен? — Не, я с.*

**СУПРАЦЬ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які процідзейнічае чаму-н., напр.: *супрацьалкагольны, супрацьболевы, супрацьгніласны.*

**СУПРАЦЬА́ТАМНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для абароны ад атамнай зброі.

**СУПРАЦЬЗАКÓННЫ**, -ая, -ае. Які супярэчыць закону. *С. ўчынак.* ‖ *наз.* **супрацьзакóннасць**, -і, *ж.*

**СУПРАЦЬЗАЧА́ТКАВЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для прадухілення цяжарнасці. *С. сродак.*

**СУПРАЦЬЛЕ́ГЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Размешчаны насупраць; які ідзе, вядзе ў адваротным кірунку. *С. бераг ракі.* **2.** Які карэнным чынам адрозніваецца ад чаго-н., не сумяшчальны з чым-н. *Супрацьлеглыя панящці.* ‖ *наз.* **супрацьле́гласць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**СУПРАЦЬПАВЕ́ТРАНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для барацьбы з авіяцыяй праціўніка або для абароны ад яе. *Супрацьпаветраная абарона.*

**СУПРАЦЬПАКАЗА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* (спец.). **1.** Спецыяльная заўвага, якая ўказвае на шкоднасць або немагчымасць ужывання, прымянення чаго-н., якога-н. лякарства, лячэння і інш. *С. да прымянення антыбіётыкаў.* **2.** Паказанне, якое супярэчыць іншаму паказанню.

**СУПРАЦЬПАКА́ЗАНЫ**, -ая, -ае. Такі, для якога існуе супрацьпаказанне; недапушчальны для ўжывання. *Супрацьпаказаныя лякарствы.* ‖ *наз.* **супрацьпака́занасць**, -і, *ж.*

**СУПРАЦЬПАСТА́ВІЦЬ**, -ста́ўлю, -ста́віш, -ста́віць; -ста́ўлены; *зак., каго-што каму-чаму.* **1.** Параўнаць, паказаўшы розніцу, процілегласць прыкмет аднаго і другога. *С. вывады двух даследаванняў.* **2.** Процідзейнічаючы, накіраваць супраць каго-, чаго-н. *С. розум сіле.* ‖ *незак.* **супрацьпастаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **супрацьпастаўле́нне**, -я, *н.*

**СУПРАЦЬРАКЕ́ТНЫ**, -ая, -ае. Накіраваны супраць ракет, на абарону ад ракетнай зброі. *Супрацьракетная абарона.*

**СУПРАЦЬСТАЯ́ЦЬ**, -стаю́, -стаі́ш, -стаі́ць; -стаі́м, -стаіце́, -стая́ць; -сто́й; *незак.*, звычайна *каму-чаму.* **1.** Захоўваць устойлівае становішча пад уздзеяннем чаго-н. *С. ветру.* **2.** Супраціўляцца, аказваць супрацьдзеянне. *С. націску ворага.* **3.** Быць супрацьпастаўленым, адрозніваўца па сутнасці. *С. поглядам.*

**СУПРАЦЬТА́НКАВЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для барацьбы з танкамі, для абароны ад танкаў. *С. роў. Супрацьтанкавыя гранаты.*

**СУПРАЦЬХІМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Накіраваны супраць хімічнай зброі, прызначаны для абароны ад яе. *Супрацьхімічная абарона.*

**СУПРАЦЬЯ́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Лекавыя сродкі, якія абясшкоджваюць яд, або аслабляюць яго дзеянне. **2.** *перан.* Тое, што супрацьдзейнічае шкоднаму ўплыву. *С. ад ляноты.*

**СУПРО́ЦЬ** *гл.* супраць.

**СУПЫ́НАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Часовы перапынак у якім-н. дзеянні; часовае спыненне чаго-н. *Не жадаць супынку ў вучобе. С. у лесе быў вымушаным. С. — толькі на абед.*

**СУПЯРЭ́ЧЛІВЫ**, -ая, -ае. Які мае ў сабе супярэчнасці (у 1 знач.). *Супярэчлівыя думкі. Супярэчлівыя працэсы.* ‖ *наз.* **супярэ́члівасць**, -і, *ж.*

**СУПЯРЭ́ЧНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Узаемадзеянне супрацьпастаўленых і ўзаемазвязаных сутнасцей як крыніц самаруху і развіцця (спец.). *Дыялектычныя супярэчнасці.* **2.** Палажэнне, пры якім адно (выказванне, думка, учынак) выключае іншае, не сумяшчальнае з ім. *С. у поглядах.* **3.** Выказванне або ўчынак, накіраваны супраць каго-, чаго-н.; пярэчанне, супярэчанне; процілегласць. *Супярэчнасці па цане на газ і нафту абвастраюць міжнародныя адносіны.* ◊ **Дух супярэчнасці** — імкненне зрабіць не так, а зусім інакш.

**СУПЯРЭ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які супярэчыць чаму-н. *Супярэчныя погляды.*

**СУПЯРЭ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак.* **1.** *каму.* Пярэчыць, не згаджаючыся з кім-н. *С. бацьку.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *чаму.* Не адпавядаць, маючы ў сабе супярэчнасці. *Паказанні сведак супярэчылі адно аднаму.*

**СУПЯСЧА́НЫ** *гл.* супесак.

**СУ́РА**, -ы, *ж.* Раздзел Карана.

**СУРАВІ́ЗНА**, -ы, *ж.* (спец.). Суравая або неапрацаваная тканіна, пража. *Прамыўка суравізны.*

**СУРАВЫ́**, -а́я, -о́е. Пра тканіну, ніткі: грубы, нябелены. *Суравое палатно. С. абрус* (з такой тканіны).

**СУРАГА́Т**, -у, *М* -га́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Замяняльнік натуральнага прадукту, прадмета, які толькі часткова мае яго некаторыя ўласцівасці. *С. скуры.* ‖ *прым.* **сурага́тны**, -ая, -ае.

**СУРАЗМЕ́РАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Зрабіць суразмерным, устанавіць адпаведнасць з чым-н. *С. сваё выдаткі з прыбыткам.* ‖ *незак.* **суразме́рваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **суразмяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СУРАЗМЕ́РНЫ**, -ая, -ае. Які адпавядае чаму-н. па велічыні, памерах; прапарцыянальны. *Выдаткі суразмерныя заработку.* ‖ *наз.* **суразме́рнасць**, -і, *ж.*

**СУРАЗМО́ВЕЦ**, -а, *м.* Тое, што і *суразмоўнік.*

**СУРАЗМО́ЎНІК**, -а, *М.* -ку, *мн.* і, -аў, м. Той, хто вядзе гутарку, размаўляе з кім-н. *Цікавы с.* ‖ *ж.* **суразмоўніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**СУРВЭ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Невялікі кавалак тканіны або паперы, якім карыстаюцца ў гігіенічных мэтах. **2.** Невялікі абрус. ‖ *прым.* **сурвэ́тачны**, -ая, -ае.

**СУРГУ́Ч**, -у́, *м.* Каляровая цвёрдая сумесь смалістых рэчываў і воску, у расплаўленым выглядзе ўжываецца для заклейвання, накладання пячатак і інш. ‖ *прым.* **сургу́чны**, -ая, -ае.

**СУРДАКА́МЕРА**, -ы, *мн.* -ы, -мер, *ж.* (спец.). Памяшканне з гуканепранікальнымі сценамі, якое служыць для правядзення фізіялагічных і псіхалагічных даследаванняў, а таксама для спецыяльных трэніровак ва ўмовах адсутнасці гукавых раздражняльнікаў. ‖ *прым.* **сурдака́мерны**, -ая, -ае.

**СУРДАПЕДАГО́ГІКА**, -і, *ДМ* -гіцы, *ж.* Раздзел дэфекталогіі, які займаецца навучаннем і развіццём дзяцей з дэфектамі слыху. ‖ *прым.* **сурдапедагагі́чны**, -ая, -ае.

**СУРДЗІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -дзін, *ж.* Прыстасаванне ў музычных інструментах, пры дапамозе якога прыглушаецца гук у час ігры.

**СУРДЗІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Тое, што і *сурдзіна.* ◊ **Пад сурдзінку** (разм.) — а) ціха, прыглушана; б) тайком, цішком, непрыкметна.

**СУР'Ё́З**, -у, *м.* (разм.). Сур'ёзнасць. ◊ **На поўным сур'ёзе** — сур'ёзна, без жартаў.

**СУР'Ё́ЗНЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *незак.* (разм.). Станавіцца сур'ёзным (у 1 і 2 знач.), больш сур'ёзным. ‖ *зак.* **пасур'ёзнець**, -ею, -ееш, -ее.

**СУР'Ё́ЗНЫ**, -ая, -ае. **1.** Удумлівы і строгі, не легкадумны. *С. чалавек. Сур'ёзныя адносіны да працы.* **2.** Глыбакадумны, засяроджаны на важных справах. *С. падыход.* **3.** Істотны і важны па змесце, не жартоўны. *Сур'ёзная п'еса. Сур'ёзная размова.* **4.** Які патрабуе да сябе ўвагі з-за сваёй складанасці, які тоіць у сабе небяспечныя вынікі. *Сур'ёзная праблема. Сур'ёзнае захворванне.* **5.** Заняты якімі-н. думкамі (пра выраз твару). *С. выгляд.* **6. сур'ёзна,** *пабочн. сл.* На самай справе, сапраўды. *Не, сур'ёзна, калі прыедзеце да нас?* ‖ *наз.* **сур'ёзнасць**, -і, *ж.*

**СУРКО́ВЫ** *гл.* сурок.

**СУРМА́**, -ы́, *ж.* **1.** Хімічны элемент, серабрыста-белы метал, які ўжываецца ў розных сплавах у тэхніцы, у друкарскай справе і пад. **2.** Фарба для чарнення валасоў, броваў і пад. (уст.). ‖ *прым.* **сурмя́ны**, -ая, -ае. *Сурмяныя руды.*

**СУРМІ́ЦЬ**, сурмлю́, су́рміш, су́рміць; су́рмлены; *незак., што, уст.* Фарбаваць сурмой. *С. бровы.* ‖ *зак.* **насурмі́ць**, -сурмлю́, -сурмі́ш, -сурмі́ць; -сурмі́м, -сурміце́, -сурмя́ць; насу́рмлены. ‖ *звар.* **сурмі́цца**, сурмлюся, су́рмішся, су́рміцца; *зак.* **насурмі́цца**, -сурмлюся, -су́рмішся, -су́рміцца.

**СУРО́ВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *незак.* Станавіцца суровым. ‖ *зак.* **пасуро́вець**, -ею, -ееш, -ее.

**СУРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Якому не ўласціва паблажлівасць да сябе і іншых; цвёрды, ненахісны; уласцівы такому чалавеку. *С. камандзір. С. характар.* **2.** Які не дапускае ніякіх паслабленняў; вельмі строгі; бязлітасны, жорсткі. *Суровая дысцыпліна. Суровыя меры.* **3.** Вельмі цяжкі, поўны выпрабаванняў, невыносны. *Суровыя дні вайны.* **4.** Неспрыяльны для жыцця, халодны. *С. клімат. Суровая зіма.* ‖ *наз.* **суро́васць**, -і, *ж.* (да 1—3 знач.).

**СУРО́ДЗІЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сваяк, родзіч. **2.** Чалавек, блізкі з кім-н. па паходжанні, нацыянальнай прыналежнасці, месцы нараджэння. **3.** *перан.* Жывёліна

або расліна, што належаць да аднаго роду. *Кошка і яе дзікія сувродзічы.*

**СУРÓК**, -рка́, *мн.* -ркі́, -ркóў, *м.* Невялікі грызун сямейства вавёркавых, які жыве ў глыбокіх норах і зімой залягае ў спячку. ‖ *прым.* **суркóвы**, -ая, -ае.

**СУРÓКІ**, -аў (разм.). У народных павер'ях: няшчасце, хвароба і пад., прынесеныя каму-н. нядобрым вокам.

**СУРÓЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што* і *без дап.* (разм.). **1.** У народных павер'ях: прынесці няшчасце, хваробу і пад. каму-н. нядобрым вокам. **2.** Пахвальбой, прадказаннямі пашкодзіць каму-, чаму-н. *Не хвалі сына, а то можна с.*

**СУ́РЫК**, -у, *м.* Мінеральная чырвона-аранжавая або чырвона-карычневая фарба. *Свінцовы с.* ‖ *прым.* **су́рыкавы**, -ая, -ае.

**СУСÁЛЬ**, -і, *ж.* (спец.). Тонкія пласцінкі, плёнкі з розных металаў (золата, серабра, медзі і інш.), якія служаць для дэкаратыўнага аздаблення якіх-н. вырабаў. ‖ *прым.* **суса́льны**, -ая, -ае. *Сусальнае золата. С. пернік.*

**СУСÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сусаль. **2.** *перан.* Які вызначаецца ўяўнай прыгажосцю, саладжавасцю. *Сусальныя прамовы.* ‖ *наз.* **суса́льнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**СУСВÉТ**, -у, *М* -свéце, *м.* **1.** (С вялікае). Увесь свет, бясконцы ў часе і прасторы, разнастайны па формах, якія прымае матэрыя ў працэсе свайго развіцця. *Разгадаць тайны Сусвету.* **2.** Зямны шар, Зямля з усім, што існуе на ёй. *Аб'ехаць увесь с.* ‖ *прым.* **сусвéтны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Сусветная прастора.*

**СУСВÉТНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сусвет. **2.** Які распаўсюджваецца на ўвесь свет, адносіцца да ўсяго свету. *Сусветная гісторыя. С. кангрэс моладзі* (розных краін свету).

**СУСÉД**, -а, *М* -дзе, *мн.* сусéдзі, -дзяў *і (з ліч. 2, 3, 4)* сусéды, -даў, *м.* Чалавек, які жыве блізка, побач з кім-н. або займае месца, бліжэйшае да каго-н. *С. па пад'ездзе. С. па купэ. С. па палаце.* ‖ *ж.* **сусéдка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак. ‖ *прым.* **сусéдскі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СУСÉДНІ**, -яя, -яе. Размешчаны па суседстве, блізка, побач з кім-, чым-н. *С. надзел зямлі. Суседняя краіна.*

**СУСÉДСТВА**, -а, *н.* Блізкасць, сумежнасць з кім-, чым-н. па месцы жыхарства, па месцы знаходжання, размяшчэння. *Пасяліцца па суседстве. Па суседстве з вёскай лес.*

**СУ́СЛА**, -а, *н.* **1.** Адвар крухмалістых і цукрыстых рэчываў у стане браджэння, з якога вырабляюць піва і квас. **2.** Сок адціснутага вінаграду. ‖ *прым.* **су́славы**, -ая, -ае.

**СУ́СЛІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Невялікі грызун сямейства вавёркавых, шкоднік пасеваў. ‖ *прым.* **су́слікавы**, -ая, -ае. *Суслікавае футра.*

**СУ́СЛІЦЬ**, -слю, -сліш, -сліць; -слены; *незак., што* (разм.). Павольна, нетаропка смактаць што-н. *С. цукерку. Дзіця с. пальцы.*

**СУСЛЯНЯ́** *і* **СУСЛЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня сусліка.

**СУСПÉНЗІІ**, -ій, *адз.* суспéнзія, -і, *ж.* (спец.). Вадкасці, у якіх дробныя часцінкі цвёрдага рэчыва знаходзяцца ў завіслым стане; завісь. ‖ *прым.* **суспензі́йны**, -ая, -ае.

**СУСТÁЎ**, -та́ва, *мн.* -та́вы, -та́ваў, *м.* Рухомае злучэнне касцей або храсткоў у арганізме чалавека, жывёлы. *Каленны с. Боль у суставах.* ‖ *прым.* **суста́ўны**, -ая, -ае. *С. рэўматызм.*

**СУСТÁЎЧАТЫ**, -ая, -ае (спец.). **1.** Які складаецца з асобных рухомых частак, змацаваных паміж сабою. *Сустаўчатая труба.* **2.** Які складаецца з асобных членікаў. *Сустаўчатыя канечнасці насякомых.*

**СУСТРЭ́ЦЦА**, -рэ́нуся, -рэ́нешся, -рэ́нецца; -рэ́нься; *зак.* Тое, што і *спаткацца.* ‖ *незак.* **сустрака́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СУСТРЭ́ЦЬ**, -рэ́ну, -рэ́неш, -рэ́не; -рэ́нь; -рэ́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Тое, што і *спаткаць.* **2.** *каго-што.* Прыняць пэўным чынам, выказаць свае адносіны да каго-, чаго-н., прывітаць каго-н. *Ветліва с. гасцей. С. дакладчыка воплескамі.* **3.** *што.* Адчуць, атрымаць; надарыцца каму-н. *С. падтрымку. Шчасце сустрэла на самым пачатку жыцця.* **4.** Сутыкнуцца з кім-, чым-н. у жыцці, у працы. *С. добрага чалавека.* **5.** Дачакацца пачатку, надыходу, з'яўлення чаго-н. *Змагаліся, каб хутчэй с. радасную перамогу.* ‖ *незак.* **сустрака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СУСТРЭ́ЧА**, -чы, *мн.* -ы, -рэ́ч, *ж.* **1.** Тое, што і *спатканне.* **2.** Сход, прызначаны для знаёмства з кім-н. *С. дэпутата з выбаршчыкамі.* **3.** Спаборніцтва ў якой-н. галіне спорту. *С. футбольных каманд.* **4.** Урачыстасць, падрыхтаваны прыём з прычыны надыходу, прыбыцця каго-, чаго-н. *С. свята.*

**СУСТРЭ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які рухаецца насустрач. *С. цягнік. С. вецер. Ніхто з сустрэчных* (наз.) *не спыніўся.* **2.** Які адбываецца пры сустрэчы, пры руху з двух бакоў. *С. бой. С. агонь.* **3.** Які даецца ў адказ на што-н. *С. план.* ◊ **Першы сустрэчны** — хто трапіцца, выпадковы. **Сустрэчны** (наз.) **і папярэчны** — любы без разбору чалавек, усякі.

**СУТÁНА**, -ы, *мн.* -ы, -та́н, *ж.* Верхняе доўгае адзенне ў каталіцкага духавенства.

**СУ́ТАРГА**, -і, *ДМ* -рзе, *мн.* -і, -аў, *ж.* Рэзкае міжвольнае скарачэнне мышцаў, звычайна з болямі. ‖ *прым.* **су́таргавы**, -ая, -ае.

**СУ́ТАРГАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сутарга. **2.** Пра рух: міжвольны і рэзкі, падобны на сутаргі. *Сутаргавыя рухі. Сутаргава* (прысл.) *усхліпваць.* **3.** *перан.* Хваравітанеспакойны, ліхаманкавы. *С. шэпт.* ‖ *наз.* **су́таргавасць**, -і, *ж.*

**СУТАРЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Памяшканне пад першым паверхам будынка, ніжэй узроўню зямлі; падвал; падзямелле. *Майстэрня знаходзілася ў сутарэнні.*

**СУ́ТАЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* суткі. **2.** *у знач. наз.* **су́тачныя**, -ых. Грошы, якія выплачваюцца асобам, што знаходзяцца ў камандзіроўцы або накіраваны на працу ў другую мясцовасць. *Выплаціць с.*

**СУ́ТКІ**, -так. Адзінка вымярэння часу, роўная 24 гадзінам, працягласць дня і ночы. *Ехалі адны с.* ‖ *прым.* **су́тачны**, -ая, -ае. *Сутачная тэмпература.*

**СУ́ТНАСЦЬ**, -і, *ж.* Унутраны змест прадмета, аснова, самае галоўнае, істотнае ў чым-н. *С. справы. Дакапацца да сутнасці. Па сутнасці* (пабочн.: на самай справе, у сапраўднасці).

**СУТÓКІ**, -аў. **1.** Месца, дзе зліваюцца два водныя патокі. *С. рэк.* **2.** Лінія сутыкнення, мяжа (разм.). *С. неба і зямлі.*

**СУТÓНЕЦЬ**, -ее; *безас.; незак.* (разм.). Змяркацца. *На дварэ сутонее.*

**СУТÓННЕ**, -я, *н.* (разм.). Час пасля заходу сонца перад надыходам ночы, а таксама паўзмрок перад світаннем; паўзмрок у слаба асветленым месцы, памяшканні. *За акном згушчаецца с.* ‖ *прым.* **сутóнневы**, -ая, -ае.

**СУТУ́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *незак.* Быць або рабіцца сутулым; горбіцца. ‖ *зак.* **ссуту́ліцца**, -люся, -лішся, -ліцца.

**СУТУ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак., што.* Тое, што і *горбіць. С. плечы.* ‖ *зак.* **ссуту́ліць**, -лю, -ліш, -ліць; -лены.

**СУТУ́ЛЫ**, -ая, -ае. З крыху згорбленай спінай і прыпаднятымі плячамі. *С. хлопец.* ‖ *наз.* **суту́ласць**, -і, *ж.*

**СУТЫКÁЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* сутыкнуцца. **2.** Узаемна дакранацца, датыкацца. *С. спінамі.* **3.** Мецць сумежныя бакі; межавацца. *Луг сутыкаецца з пасевамі жыта.* **4.** *перан.* Уступаць у якія-н. адносіны, кантакты з кім-, чым-н.; мецць справу з кім-, чым-н. *С. з падатковай інспекцыяй. С. з перакладам паэзіі. С. з праблемай выбару.* ‖ *наз.* **сутыка́нне**, -я, *н.*

**СУТЫКÁЦЬ** *гл.* сутыкнуць.

**СУТЫКНÉННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* сутыкнуцца. **2.** *перан.* Вострая спрэчка, сварка на глебе рознагалосся. *С. з сябрам.* **3.** *перан.* Сутычка, бой. *Узброенае с.* **4.** *перан.* Непасрэдныя зносіны, сувязь, знаёмства з чым-н. *С. з рэчаіснасцю.* **5.** *перан.* Проціпастаўленне чаго-н. супярэчнага, несумяшчальнага, уступленне ў канфлікт, у варожыя адносіны. *С. інтарэсаў. С. характараў.*

**СУТЫКНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** *з кім-чым.* Рухаючыся насустрач, ударыцца адно аб адно, наткнуцца адзін на аднаго. *Машыны сутыкнуліся на вузкай дарозе. С. ў дзвярах з суседам.* **2.** *з кім.* Нечакана сустрэцца, сысціся дзе-н. *С. ў лесе з ляснічым.* **3.** *перан., з чым.* Спазнаць, зведаць што-н.: пазнаёміцца з чым-н. *С. з непры-*

*емнасцямі.* **4.** *з кім-чым.* Уступіць у сутычку, сысціся ў баі. *С. з ворагам.* ‖ *незак.* **сутыка́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **сутыкне́нне**, -я, *н.* (да 1, 3 і 4 знач.).

**СУТЫКНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* **1.** Пхаючы насустрач, ушчыльную наблізіць адно да аднаго. *С. вагоны.* **2.** *з кім.* Прывесці да нечаканай сустрэчы, знаёмства з кім-н. *Жыццё сутыкнула яго з многімі людзьмі.* ◊ **Сутыкнуць ілбамі** — прымусіць уступіць у адкрытае сутыкненне. ‖ *незак.* **сутыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СУТЫ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Кароткі бой, узброенае сутыкненне. *С. перадавых часцей. С. з варожай засадай.* **2.** Сварка, спрэчка. *С. з суседкай.* **3.** Тое, што і *сутыкненне* (у 5 знач.).

**СУТЭНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (пагард.). Чалавек, які займаецца арганізацыяй прастытуцыі і атрымлівае ад гэтага даход. ‖ *прым.* **сутэнёрскі**, -ая, -ае.

**СУ́ФІКС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У граматыцы: марфема, якая знаходзіцца пасля кораня і служыць для ўтварэння новых слоў ці граматычных форм слова. ‖ *прым.* **суфікса́льны**, -ая, -ае.

**СУФІКСА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Утварэнне слоў або форм слоў пры дапамозе суфіксаў.

**СУФЛЕ́**, *нескл., н.* Назва кулінарных вырабаў (кандытарскіх, малочных, мясных) у выглядзе пюрэ з узбітымі бялкамі. *С. з яблыкаў. Ягаднае с.*

**СУФЛЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Работнік тэатра, які суфліруе акцёрам. ‖ *прым.* **суфлёрскі**, -ая, -ае. *Суфлёрская будка* (на сцэне). **2.** Падказчык (разм.).

**СУФЛІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., каму.* Падказваць акцёрам словы ролі ў час спектакля.

**СУХА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) сухі (у 1 знач.), які мае адносіны да сухасці (у 1 знач.), напр.: *сухавей, сухалюбівы, сухаядзенне;* 2) з сухім (у 3 знач.), у сухім выглядзе, напр.: *сухапрасаваны, сухасалёны, сухафрукты;* 3) з сухім (у 4 знач.), напр.: *сухабокі, сухаверхі, сухарукі, сухастой.*

**СУХАВЕ́Й**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Сухі гарачы вецер, які нясе з сабой працяглую засуху. ‖ *прым.* **сухаве́йны**, -ая, -ае.

**СУХАГРУ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сухагрузнае судна. **2.** Сухі груз. *Транспарціроўка сухагрузаў.*

**СУХАГРУ́ЗНЫ**, -ая, -ае (спец.). Пра судны: прызначаны для перавозкі сухіх насыпных або штучных грузаў. *Сухагрузныя баржы.*

**СУХАДО́Л**, -а, *м.* Бязводная лагчына, схіл, луг, якія атрымліваюць вільгаць толькі ад талай або дажджавой вады. ‖ *прым.* **сухадо́льны**, -ая, -ае.

**СУХАЖЫ́ЛЛЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Шчыльная, эластычная мышачная звязка. ‖ *прым.* **сухажы́льны**, -ая, -ае.

**СУХАЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае. Пра расліны: які добра пераносіць сухое паветра і сухія глебы, прыстасаваны да жыцця ў засушлівых мясцовасцях. ‖ *наз.* **сухалюбі́васць**, -і, *ж.*

**СУХАМА́**, *прысл.* Без вадкай і гарачай стравы. *Вячэраць с.*

**СУХАМЯ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* (разм.). Сухая яда без гарачай і вадкай стравы.

**СУХАПУ́ТНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да дзеянняў на сушы, руху па сушы. *Сухапутныя войскі. Сухапутнае падарожжа.*

**СУХАПУ́ЦЦЕ**, -я, *н.* (разм.). Шлях па сушы (у супрацьлегласць воднаму шляху).

**СУХА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Высушаны кавалак хлеба, булкі, а таксама гатунак сухога печыва. *Пачак сухароў. Малочныя сухары.* **2.** *перан.* Сухі (у 8 знач.), нячулы чалавек (разм.). *Не чалавек, а с.* ‖ *прым.* **суха́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СУХАРЛЯ́ВЫ**, -ая, -ае. Худы, тонкі, сухі. *С. чалавек.* ‖ *наз.* **сухарля́васць**, -і, *ж.*

**СУХАРУ́КІ**, -ая, -ае. Які дрэнна валодае або зусім не валодае рукой (рукамі) у сувязі з атрафіяй мышцаў. ‖ *наз.* **сухару́касць**, -і, *ж.*

**СУХАСТО́ІНА**, -ы, *мн.* -ы, -то́ін, *ж.* Засохлае на карані дрэва.

**СУХАСТО́Й**, -ю, *м., зб.* Засохлыя на корані дрэвы. ‖ *наз.* **сухасто́йны**, -ая, -ае.

**СУХАТА́**, -ы́, *ДМ* -хаце́, *ж.* **1.** Адчуванне сухасці, адсутнасць вільготнасці (разм.). *С. ў роце.* **2.** Гарачая сухая пагода. *Цэлы май стаяла с.* **3.** *перан.* Клопат, турбота, туга (разм.). *На душы с.*

**СУХАФРУ́КТЫ**, -аў. Сушаныя фрукты. *Кампот з сухафруктаў.*

**СУХАЯДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Выключэнне вадкасці з харчовага рацыёну на суткі.

**СУХІ́**, -а́я, -о́е. **1.** Не мокры, не замочаны. *Сухая кашуля. Сухое сена.* **2.** Пазбаўлены вільгаці, не сыры. *Сухія дровы. С. клімат. С. вецер.* **3.** Які страціў свежасць, сакавітасць, мяккасць, высахлы або высушаны; прыгатаваны ў выглядзе парашку, канцэнтрату. *С. батон. Сухія яблыкі. Сухое малако. С. кісель.* **4.** Пазбаўлены спажыўных сокаў, засохлы, амярцвелы; які не дзейнічае, высах з-за якой-н. хваробы, атрафіраваны. *С. куст малін. С. корань. Сухая рука.* **5.** Які праводзіцца, робіцца або праходзіць, працякае пры адсутнасці вільгаці, вадкасці; без вадкіх выдзяленняў. *Сухая тынкоўка. С. кашаль.* **6.** Нішчымны, без нічога (пра хлеб). *Есці с. батон.* **7.** Які мае сухарлявы склад цела, хударлявы. *С. стары.* **8.** *перан.* Пазбаўлены душэўнай цеплыні, дабрыні; неласкавы. *С. чалавек. С. тон* (непрыветны). **9.** *перан.* Скупы, лаканічны. *С. пералік фактаў.* **10.** Пра гукі: пазбаўлены гучнасці, мяккасці. *С. лязгат металу.* **11.** Пра лік у гульні: такі, пры якім той, хто прайграў не атрымаў ніводнага ачка. *Прайграць матч з сухім лікам.* ◊ **Сухі закон** — забарона гандляваць моцнымі алкагольнымі напіткамі. ‖ *памянш.* **сухе́нькі**, -ая, -ае (да 1 і 7 знач.; разм.). ‖ *наз.* **су́хасць**, -і, *ж.* (да 1—5, 7—10 знач.).

**СУХМЕ́НЬ**, -і, *ж.* (разм.). Сухое гарачае надвор'е.

**СУХО́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Хранічнае захворванне нервовай сістэмы, якое праяўляецца ў пашкоджанні спіннога мозга на глебе сіфілісу. ‖ *прым.* **сухо́ткавы**, -ая, -ае.

**СУХО́ТЫ**, -аў. Тое, што і *туберкулёз.* ‖ *прым.* **сухо́тны**, -ая, -ае. *С. кашаль.*

**СУЦЕ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., каго (што).* Аблегчыць чыё-н. гора, перажыванне, заспакоіць каго-н. чым-н. радасным. *С. няшчаснага.* ‖ *незак.* **суцяша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **суце́шыцца**, -шуся, -шышся, -шыцца; *незак.* **суцяша́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **суцяшэ́нне**, -я, *н.*

**СУЦІ́ШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *зак.* **1.** Перастаць хвалявацца, заціхнуць, супакоіцца, уціхамірыцца. *С. пасля добрых навін. Дзетвара суцішылася.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Аслабець у сваім праяўленні; спыніцца, перастаць. *Вецер суцішыўся. Боль суцішыўся.* ‖ *незак.* **суціша́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СУЦІ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Супакоіць, давесці да стану спакою, уціхамірыць. *С. дзяцей.* **2.** *што.* Змякчыць, зрабіць менш адчувальным; аслабіць, прыглушыць якое-н. пачуццё. *С. боль. С. хваляванне.* **3.** *каго-што.* Прыцішыць, затрымаць (чый-н. ход, рух і пад.). *С. каня. С. бег.* ‖ *незак.* **суціша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **суцішэ́нне**, -я, *н.*

**СУЦЭЛЬНАМЕТАЛІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Зроблены поўнасцю з металу. *С. вагон.*

**СУЦЭ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які цягнецца без прамежкаў, цалкам займае сабой усю прастору. *Суцэльная паласа асфальту.* **2.** Такі, які ахоплівае ўсіх ці ўсё; паўсюдны, усеагульны. *Суцэльная электрыфікацыя.* **3.** Зроблены з аднаго кавалка; не састаўны. *Падлога з суцэльных дошак. Суцэльная парода* (якая не падзяляецца на пласты па сваёй структуры). ‖ *наз.* **суцэ́льнасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**СУЦЯ́ГА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -цязе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -цяг (разм., неадабр.). Суцяжнік, суцяжніца.

**СУЦЯ́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм., неадабр.). Чалавек, які займаецца суцяжніцтвам, цяганінай па судах. ‖ *ж.* **суця́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **суця́жніцкі**, -ая, -ае.

**СУЦЯ́ЖНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм., неадабр.). Займацца цяжбамі, маючы да гэтага схільнасць, інтарэс; імкнуцца атрымаць выгаду любым, нават нядобрасумленным спосабам. ‖ *наз.* **суця́жніцтва**, -а, *н.*

**СУЦЯША́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто суцяшае, суцешыў каго-н. ‖ *ж.* **суцяша́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**СУЦЯША́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які дае палёгку, супакаенне. *С. адказ. У яго не знайшлося сказаць нічога суцяшальнага* (наз.). ‖ *наз.* **суцяша́льнасць**, -і, *ж.*

**СУЦЯША́ЦЦА** *гл.* суцешыцца.

**СУЦЯША́ЦЬ** *гл.* суцешыць.

**СУЦЯШЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* суцешыць. **2.** Тое (той), што (хто) суцяшае, радуе каго-н. *Ні ў чым няма мне суцяшэння. Адно с. — гэта старэйшы сын.*

**СУЧА́СНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* сучасны. **2.** Сучасная эпоха, рэчаіснасць. *Адлюстраванне сучаснасці ў спектаклі.*

**СУЧА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які жыве ў адзін і той жа час з кім-, чым-н. *Мы — сучаснікі вялікіх падзей.* ‖ *ж.* **суча́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**СУЧА́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да цяперашняга часу, да адной эпохі з кім-н. *С. беларускі раман. Сучасныя Якубу Коласу паэты.* **2.** Які мае адносіны да сённяшняга; цяперашні. *Сучаснае жыццё. Сучасныя падзеі.* **3.** Які адпавядае патрабаванням свайго часу, не адсталы. *Сучасная тэхніка. Сучасныя ідэі.* **4. суча́снае**, -ага, *н.* Падзеі, якія адбываюцца цяпер, у дадзены час; цяперашні час. *Пра сучаснае можна многа гаварыць.* ‖ *наз.* **суча́снасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**СУ́ЧКА** *гл.* сука.

**СУЧЛЯНЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* сучляніць. **2.** Від, спосаб змацавання асобных частак дэталей, секцый чаго-н., касцей, храсткоў і інш., а таксама месца такога змацавання. *Шарнірнае с. С. запясця.*

**СУЧЛЯНІ́ЦЬ**, -ляню́, -ляні́ш, -ляні́ць; -лянім, -леніце́, -лянязь; -ле́нены; *зак., што.* Злучыць, змацаваць разам. *С. часткі канструкцыі.* ‖ *незак.* **сучляня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **сучляне́нне**, -я, *н.*

**СУ́ЧЧА**, -а, *н., зб.* Сукі; галлё. *Назбіраць с.*

**СУ́ЧЧЫН**, -а. Які належыць сучцы, зроблены для сучкі. *Суччына будка.* ◊ **Суччын сын** — нягоднік, ужыв. як лаянкавы выраз, часцей у форме зваротка.

**СУШ**, -ы, *ж.* **1.** Сухое, без дажджоў надвор'е; засуха. *Увесь май стаяла с.* **2.** Што-н. сухое, пазбаўленае вільгаці (напр., сухая зямля, сухое галлё).

**СУ́ША**, -ы, *ж.* Зямля ў процілегласць воднай прасторы. *Вярнуцца з мора на сушу.*

**СУ́ШАНЫ**, -ая, -ае. Высушаны, нарыхтаваны спосабам сушкі. *Сушаныя грыбы. Сушаная рыба.*

**СУ́ШКА**[1], -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Хлебабулачны выраб у выглядзе малога, тонкага і сухога абаранка. ‖ *прым.* **су́шачны**, -ая, -ае.

**СУ́ШКА**[2] *гл.* сушыць.

**СУ́ШНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Памяшканне, дзе сушаць снапы збожжа ці лёну; асець. ‖ *прым.* **су́шневы**, -ая, -ае.

**СУШНЯ́К**, -у́, *м., зб.* (разм.). Сухое суччa, галлё; сухастой.

**СУШЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Апарат, устаноўка для сушкі чаго-н. *С. для збожжа. С. для бялізны.* **2.** Памяшканне, дзе сушаць, прасушваюць што-н.

**СУШЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для сушкі, прасушвання чаго-н. *С. цэх.*

**СУШЫ́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* Тое, што і *сушылка* (у 2 знач.).

**СУШЫ́ЦЦА**, сушу́ся, су́шышся, су́шыцца; *незак.* **1.** Сушыць, звычайна на сабе, мокрую вопратку, абутак. *С. каля грубкі.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Сохнуць (у 1 знач.), прасушвацца, засушвацца. *На балконе сушыцца бялізна. У печы сушацца грыбы.* ‖ *зак.* **вы́сушыцца**, -сушуся, -сушышся, -сушыцца.

**СУШЫ́ЦЬ**, сушу́, су́шыш, су́шыць; су́шаны; *незак.* **1.** *што.* Рабіць сухім (што-н. сырое, мокрае, вільготнае), трымаючы на паветры або ў цёплым месцы. *С. бялізну. С. сена.* **2.** *што.* Нарыхтоўваць у запас, выдаляючы вільгаць з пладоў, раслін і пад.; высушваць, засушваць. *С. лекавыя травы.* **3.** *перан., каго (што).* Падрываць здароўе, знясільваць (разм.); рабіць чэрствым, нячулым. *Што ты сушыш сябе работай? Бяда сушыць жанчыну.* ‖ *зак.* **вы́сушыць**, -сушу, -сушыш, -сушыць; -сушаны. ‖ *наз.* **су́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* (да 1 і 2 знач.) *і* **сушэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**СУШЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *незак.* Рабіцца больш сухім. *Дарога паступова сушэла.*

**СФАБРЫКАВА́ЦЬ** *гл.* фабрыкаваць.

**СФАКУСІ́РАВАЦЬ** *гл.* факусіраваць.

**СФАЛЬЦАВА́ЦЬ** *гл.* фальцаваць.

**СФАЛЬШЫ́ВІЦЬ** *гл.* фальшывіць.

**СФАНТАЗІ́РАВАЦЬ** *гл.* фантазіраваць.

**СФАРМАВА́ЦЬ** *гл.* фармаваць.

**СФАРМІРАВА́ЦЦА** *гл.* фарміравацца.

**СФАРМІРАВА́ЦЬ** *гл.* фарміраваць.

**СФАРМУЛЯВА́ЦЬ** *гл.* фармуляваць.

**СФАСТРЫГАВА́ЦЬ** *гл.* фастрыгаваць.

**СФАТАГРАФАВА́ЦЦА** *гл.* фатаграфавацца.

**СФАТАГРАФАВА́ЦЬ** *гл.* фатаграфаваць.

**СФЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, сфер, *ж.* **1.** Вобласць, межы распаўсюджання чаго-н. *С. вытворчасці. С. абслугоўвання.* **2.** Грамадскае акружэнне, асяроддзе. *Навуковая с. Вышэйшыя сферы* (пра кіруючыя, арыстакратычныя колы грамадства). **3.** Замкнутая паверхня, усе пункты якой аднолькава аддалены ад цэнтра; паверхня і ўнутраная прастора шара (спец.). ‖ *прым.* **сферы́чны**, -ая, -ае (да 3 знач.).

**СФЕРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сфера. **2.** Шарападобны. *Сферычная паверхня.*

**СФІНКС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Каменная скульптура ляжачага льва з чалавечай галавой. **2.** У старажытнагрэчаскай міфалогіі: крылатая істота з тулавам ільва, з галавой і грудзямі жанчыны, якая забівала падарожнікаў, што не маглі разгадаць зададзеную загадку. **3.** *перан.* Пра незразумелую, загадкавую істоту, дзіўнага чалавека (кніжн.). *Гэты чалавек для мяне — с.* **4.** Назва роду, парода некаторых жывёл, насякомых і інш. *Кот пароды с.*

**СФУГАВА́ЦЬ** *гл.* фугаваць.

**СХАВА́ЦЦА** *гл.* хавацца.

**СХАВА́ЦЬ** *гл.* хаваць[1].

**СХАДЗІ́ЦЬ**, схаджу́, схо́дзіш, схо́дзіць; *зак.* **1.** *гл.* хадзіць. **2.** Пайсці куды-н. і, пабыўшы там, вярнуцца назад. *С. у госці. С. па каня.*

**СХАЛА́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). **1.** Паслядоўнік схаластыкі (у 1 знач.). **2.** Чалавек, які разважае схаластычна, займаецца схаластыкай (у 2 знач.). ‖ *ж.* **схала́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (да 2 знач.).

**СХАЛА́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Сярэдневяковая філасофія, якая стварыла сістэму штучных, чыста фармальных, лагічных аргументаў для тэарэтычнага абгрунтавання дагматаў царквы. **2.** Фармальныя веды, адарваныя ад жыцця, якія грунтуюцца на адцягненых разважаннях, што не правяраюцца вопытам. ‖ *прым.* **схаласты́чны**, -ая, -ае.

**СХАЛАСТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* схаластыка. **2.** Прасякнуты схаластыкай (у 2 знач.). *Схаластычныя разважанні.* ‖ *наз.* **схаласты́чнасць**, -і, *ж.*

**СХАМЯНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -меняцёся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Раптам успомніць што-н.; хутка заўважыць недахоп, памылку. *Схамянуўся: трэба ж яшчэ вывучыць верш на памяць.* **2.** Спахапіцца, здрыгануцца, выйсці са стану задуменнасці. *С. ад стуку.*

**СХАПІ́ЦЦА**, схаплю́ся, схо́пішся, схо́піцца; *зак.* **1.** *гл.* хапацца. **2.** Уступіць у бой, барацьбу, спрэчку. *С. з ворагам. Зноў схапіліся юнакі дужацца.* **3.** Раптам успомніць пра што-н.; спахапіцца (разм.). *Схапілася пад вечар, ды позна ўжо.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Заняцца полымем. *Пуня схапілася полымем.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Зрабіцца цвёрдым, застыць (спец.). *Бетон схапіўся даволі хутка.* ◊ **Схапіцца за галаву** (разм.) — прыйсці ў адчай, жахнуцца. ‖ *незак.* **схо́пліваццa**, -аюся, -аешся, -аецца (да 2 і 4 знач.).

**СХАПІ́ЦЬ**, схаплю, схо́піш, схо́піць; схо́плены; *зак.* **1.** *гл.* хапа́ць. **2.** *што.* Набыць, атрымаць, падчапіць якую-н. хваробу (разм.). *С. прастуду.* **3.** *каго-што.* Раптоўна і моцна праявіцца ў каго-н. (пра прыступ хваробы, болю; разм.). *Раптоўна схапіла мяне галава. Жывот схапіла* (безас.). **4.** *перан., што.* Хутка засвоіць, успрыняць (разм.). *С. думку выкладчыка. С. вокам* (улавіць). **5.** *што.* Перавязаць, абвязаць чым-н. *С. талію поясам.* **6.** *што.* Змацаваць, злучыць (спец.). *С. сцяну клямарам.* **7.** (звычайна з адмоўем), *што і чаго.* Паспець, справіцца зрабіць што-н. (разм.). *Адразу ўсё не схопіш.* ‖ *незак.* **схо́пліваць**, -аю, -аеш, -ае (да 4—6 знач.).

**СХАЦЕ́ЦЬ**, схачу́, схо́чаш, схо́ча; схаці́; *зак.* (разм.). Выявіць ахвоту; захацець. *Не с. пайсці ў грыбы.*

**СХВАСТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., схво́шчацца; *зак.* Сапсавацца ад працяг-

лага хвастання. *Дубчык схвастаўся.* ‖ *незак.* **схвостквацца**, -аецца.

**СХВАСТА́ЦЬ**, схвашчу́, схво́шчаш, схво́шча; схвашчы́; -ста́ны; *зак.* **1.** *што.* Хвошчучы чым-н., сасцёбаць (разм.). *С. лісце з куста.* **2.** *каго (што).* Збіць, хвошчучы чым-н. *С. карову пугай.* **3.** *што.* Хвошчучы, сапсаваць. *С. пугу.* ‖ *незак.* **схво́стваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СХВА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Сутыкненне ў баі, барацьбе, у бойцы; спаборніцтва, спрэчка. *С. на смерць. С. характараў.* **2.** звычайна *мн.* (**схва́ткі**, -так). Сутаргавае, балючае скарачэнне мышцаў жывата, маткі. *Родавыя схваткі.*

**СХВАЦІ́ЦЦА**, схвачу́ся, схва́цішся, схва́ціцца; *зак.* Тое, што і *схапіцца.*

**СХВАЦІ́ЦЬ**, схвачу́, схва́ціш, схва́ціць; схва́чаны; *зак., каго-што.* Тое, што і *схапіць.* ‖ *незак.* **схва́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СХВО́СНУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; *зак.* (разм.). Пераплесціся, злучыцца пры рэзкім сустрэчным руху (пра што-н. гнуткае, доўгае). *Галіны кустоў схвоснуліся.*

**СХВО́СТВАЦЦА** *гл.* схвастацца.

**СХВО́СТВАЦЬ** *гл.* схвастаць.

**СХЕ́МА**, -ы, *мн.* -ы, схем, *ж.* **1.** Спрошчаны чарцёж, які адлюстроўвае пабудову, сістэму, сувязь частак чаго-н. у агульным плане. *С. радыёпрыёмніка.* **2.** Апісанне, адлюстраванне чаго-н. у агульных рысах. *С. даклада.* ‖ *прым.* **схе́мны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СХЕМАТЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Падаць (падаваць), апісаць (апісваць), паказаць (паказваць) што-н. у агульных рысах, спрошчана. ‖ *наз.* **схематыза́цыя**, -і, *ж.*

**СХЕМАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Спрошчанасць, трафарэтнасць у мысленні, у адлюстраванні чаго-н.

**СХЕМАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца схемай (у 1 знач.). *Схематычная карта раёна.* **2.** Паказаны ў агульным, спрошчаным выглядзе. *Схематычнае апісанне.* ‖ *наз.* **схематы́чнасць**, -і, *ж.*

**СХІ́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; *зак.* (разм.). **1.** Не трапіць у цэль, прамахнуцца. *Не с. бы, а трапіць у мішэнь.* **2.** *перан.* Памыліцца. *Схібіў я, што не ўзяўся за гэту працу.*

**СХІЛ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Нахіленая паверхня чаго-н.; пакаты спуск. *С. страхі. С. гары.* **2.** *перан.* Набліжэнне канца жыцця. *С. жыцця.* ◊ **На схіле дзён (гадоў)** (кніжн.) — пры набліжэнні старасці. ‖ *прым.* **схі́лавы**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**СХІЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* схіліць. **2.** У астраноміі — адна з нябесных каардынат. ○ **Магнітнае схіленне** (спец.) — вугал паміж магнітным і геаграфічным мерыдыянамі ў пэўным пункце зямной паверхні.

**СХІЛІ́ЦЦА**, схілю́ся, схі́лішся, схі́ліцца; *зак.* **1.** Нагнуцца, нахіліцца над кім-, чым-н. *С. над калыскай дзіцяці. Вярба схілілася над возерам.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Павярнуць да якіх-н. межаў (часавых або прасторавых). *Дзень схіліўся к вечару.* **3.** *перан.* Згадзіўшыся з чым-н., абдумаўшы што-н., зрабіць адпаведны вывад. *С. на бок калектыву.* ‖ *незак.* **схіля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **схіле́нне**, -я, *н.* **4.** *перан.* Пакарыцца каму-, чаму-н.; падпарадкавацца каму-, чаму-н. *Не с. перад ворагам.*

**СХІЛІ́ЦЬ**, схілю́, схі́ліш, схі́ліць; схі́лены; *зак.* **1.** *што.* Нагнуць, нахіліць; апусціць. *Жыта схіліла спелыя каласы.* **2.** *перан., каго (што) да чаго і на што.* Пераканаць у неабходнасці якога-н. учынку, рашэння. *С. сяброў да ўцёкаў. С. выступаўшых на свой бок.* ◊ **Схіліць галаву** — прызнаць сябе пераможаным, пакарыцца каму-, чаму-н. ‖ *незак.* **схіля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **схіле́нне**, -я, *н.*

**СХІ́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Здольнасць, пастаянная цяга, імкненне да чаго-н. *С. да жывапісу. С. да канструявання.* **2.** Слабасць да чаго-н. *С. да салодкага.* **3.** Сімпатыя да каго-н. *Меў ён сардэчную с. да тутэйшай прыгажуні.* **4.** Наяўнасць спрыяльных умоў для захворвання. *С. да прастуды.*

**СХІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае схільнасць да чаго-н. *С. да музыкі.* **2.** Які выказвае прыхільнасць, слабасць да чаго-н. *С. да азартных гульняў.* **3.** Які мае задаткі да чаго-н. *С. да меланхоліі. С. прастуджвацца.*

**СХІ́МА**, -ы, *ж.* Вышэйшая манаская ступень у праваслаўнай царкве, якая патрабуе ад пасвячонага ў яе строгага аскетызму. *Прыняць схіму. Вялікая с.*

**СХІ́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Манах, які прыняў схіму. ‖ *ж.* **схі́мніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **схі́мніцкі**, -ая, -ае.

**СХІНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* Тое, што і *схіліцца* (у 1 знач.). ‖ *незак.* **схіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СХІНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што.* Схіліць, апусціць. *С. галаву.* ‖ *незак.* **схіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СХІСНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* Злёгку хіснуцца, трохі скрануцца з месца. *Шпакоўня схіснулася ад ветру.*

**СХІСНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., каго-што.* Злёгку зрушыць, гайдануць, скрануць з месца. *Вецер схіснуў яліны.*

**СХІТРЫ́ЦЦА**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; -ры́мся, -рыце́ся, -ра́цца; *зак.* (разм.). Непрыкметна для іншых змагчы зрабіць што-н. на карысць сабе. *С. прыдбаць дом за мізэрны кошт.* ‖ *незак.* **схітра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СХІТРЫ́ЦЬ** *гл.* хітрыць.

**СХЛУСІ́ЦЬ** *гл.* хлусіць.

**СХЛЫ́НУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; *зак.* **1.** Хлынуўшы, сцячы. *Вада схлынула.* **2.** *перан.* Пра вялікую масу людзей: адначасова пайсці аднекуль. *Натоўп схлынуў праз 30 хвілін.* **3.** *перан.* Скончыцца, мінуцца. *Толькі назаўтра схлынула навала тэлефонных званкоў.*

**СХМУРНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Пануры, хмурны. *С. твар дзяўчыны.* **2.** Пра надвор'е, неба і пад.: пахмурны. *Схмурнелае неба.* ‖ *наз.* **схмурне́ласць**, -і, *ж.*

**СХМУРНЕ́ЦЬ** *гл.* хмурнець.

**СХО́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (разм.). Тое, што і *схоў.*

**СХО́ВАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Месца, дзе можна знайсці прытулак, схавацца ад каго-, чаго-н. *С. ад дажджу. У гушчары добрая с. ад спёкі.* **2.** Таемнае месца; збудаванне для ўкрыцця каго-, чаго-н. *Трымаць золата ў схованцы. Патайная с. для грошай.*

**СХО́ВІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -ішч *і* -аў, *м.* **1.** Памяшканне для захоўвання, зберагання чаго-н. *С. бібліятэкі.* **2.** Месца, дзе можна схавацца, захінуцца ад каго-, чаго-н. *С. ад дажджу і ветру.* **3.** Спецыяльна абсталяванае памяшканне, збудаванне для ўкрыцця ад снарадаў, бомб, атрутных рэчываў. **4.** Схованка (у 2 знач.).

**СХО́ВЫ** *гл.* схоў.

**СХОД**, -а *і* -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у, *гл.* сысці. **2.** -а. Месца спуску (разм.). *Вельмі стромы с. Пашукаць сход з гары.* **3.** -а. Пасяджэнне членаў якой-н. арганізацыі для абмеркавання чаго-н. агульнага. *Рашэнне агульнага схода працоўнага калектыву.* **4.** -а. У складзе назваў некаторых выбарных устаноў, арганізацый. *Устаноўчы с. Пастанова Заканадаўчага схода.*

**СХО́ДЗІЦЦА** *гл.* сысціся.

**СХО́ДЗІЦЬ** *гл.* сысці.

**СХО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* **1.** Тое, што і *сход* (у 3 знач.; уст., цяпер неадабр.). **2.** Збор людзей з якой-н. мэтай. *С. сяброў.*

**СХО́ДКІ** *гл.* сходы.

**СХО́ДНЫ**, -ая, -ае (разм.). Прымальны, надыходзячы, выгадны, недарагі. *Сходная цана на бульбу.* ‖ *наз.* **схо́днасць**, -і, *ж.*

**СХО́ДЫ**, -аў *і* **СХО́ДКІ**, -дак. Лесвіца, яе прыступкі. *Падняцца на пяты паверх па сходах.*

**СХО́ПЛІВАЦЦА** *гл.* схапіцца.

**СХО́ПЛІВАЦЬ** *гл.* схапіць.

**СХОЎ**, схо́ву, *мн.* схо́вы, схо́ваў, *м.* **1.** Захоўванне чаго-н. *Палажыць грошы на с.* **2.** Месца, дзе можна схавацца ад каго-, чаго-н., а таксама якое-н. патаемнае месца, збудаванне для ўкрыцця каго-, чаго-н. *Знайсці с. у бярэзніку ад сонца. На гарышчы быў с.* **3.** *мн.* (**схо́вы**, -аў). Сховішча, памяшканне для захоўвання чаго-н. **4.** *перан.* Тое, што недаступна для іншых, што хаваецца ў душы, сэрцы. *Патаемныя сховы душы.*

**СХУДНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Моцна пахудзелы, худы. *Схуднелае дзіця.* ‖ *наз.* **схудне́ласць**, -і, *ж.*

**СХУДНЕ́ННЕ** *гл.* худнець.

**СХУДНЕ́ЦЬ** *гл.* худнець.

**СЦАДЗІЦЬ**, сцаджу, сцэдзіш, сцэдзіць; сцэджаны; *зак., што.* **1.** Зліць, выліць вадкасць, працэджваючы праз што-н.; зліваючы, аддзяліць вадкасць ад аселай гушчы або частку вадкасці, не боўтаючы. *С. ваду з пельменяў. С. сыроватку з тварагу.* **2.** Выцадзіць малако з саскоў. *С. грудное малако.* ‖ *незак.* **сцэджваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **сцэджванне**, -я, *н.*

**СЦАПАЦЬ** *гл.* цапаць.

**СЦВЕРДЖАННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Палажэнне, выказванне. *Сцверджанні па разгледжаных пытаннях былі вельмі розныя.*

**СЦВЕРДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., што.* **1.** Устанавіць, вызначыць на падставе абследавання. *Урач сцвердзіў запаленне лёгкіх.* **2.** Усвядоміць вартасць, значнасць сябе, сваёй асобы. *С. сваё «я».* **3.** Афіцыйна ўхваліць, прызнаць устаноўленым; пацвердзіць што-н. *С. дагавор подпісам.* ‖ *незак.* **сцвярджаць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **сцвярджэнне**, -я, *н.*

**СЦВІСЦІ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., сцвіце; *зак.* (разм.). Наскрозь пакрыцца цвіллю, сплеснець. *Батон сцвіў.*

**СЦВЯРДЖАЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выказвае згоду з чым-н., пацвярджае што-н. *С. адказ.* **2.** Які замацоўвае, устанаўлівае што-н. *С. пафас рамана.* **3.** Які мае ў сабе сцверджанне (спец.). *С. сказ. Сцвярджальнае суджэнне.* ‖ *наз.* **сцвярджальнасць**, -і, *ж.*

**СЦВЯРДЖАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *гл.* сцвердзіць. **2.** *што, з дадан.* і *без дап.* Настойліва даводзіць, упэўніваючы ў чым-н. *Старажылы сцвярджаюць, што за вёскай было возера. Усе сцвярджаюць гэту ісціну.* ‖ *наз.* **сцвярджэнне**, -я, *н.*

**СЦВЯРДЖЭННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* сцвярджаць *і* сцвердзіць. **2.** Палажэнне, думка, якой даводзяць што-н. *Правільныя сцвярджэнні.*

**СЦВЯРДЗЕЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў цвёрдым. *Сцвярдзелая гліна.*

**СЦВЯРДЗЕЦЬ** *гл.* цвярдзець.

**СЦЕБАНУЦЬ** *гл.* сцябаць.

**СЦЕБЛАВАТЫ**, -ая, -ае. Пра расліны з вялікай колькасцю сцёблаў. *Буялі сцеблаватыя кветкі.* ‖ *наз.* **сцеблаватасць**, -і, *ж.*

**СЦЕГНАВЫ** *гл.* сцягно.

**СЦЕЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* **1.** Вузкая пратаптаная дарожка. *Лясная с. С. праз жыта.* **2.** *перан.* Шлях і кірунак працоўнай дзейнасці каго-, чаго-н.; наогул кірунак, шлях да чаго-н. *Пайсці па бацькавых сцежках.*

**СЦЕНАБІТНЫ**, -ая, -ае (гіст.). Прызначаны для пралому крапасных сцен. *Сценабітнае прыстасаванне.*

**СЦЕНАВЫ** *гл.* сцяна.

**СЦЕНАПІС**, -у, *м.* Роспіс сцен, сценны жывапіс. ‖ *прым.* **сценапісны**, -ая, -ае.

**СЦЕНКА**[1], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* сцяна. **2.** Бок якога-н. пустога прадмета; абалонка якога-н. унутранага органа, поласці. *С. шафы. С. страўніка.* **3.** *перан.* Шчыльны, самкнуты рад байцоў у кулачнай бойцы. *С. кінулася на сценку.* **4.** Прадмет мэблі ў выглядзе шырокай на ўсю сцяну шафы са шматлікімі секцыямі разнастайнага прызначэння (разм.). *Старамодная с.* ◊ **Паставіць да сценкі** (разм.) — расстраляць. **Прыперці да сценкі** *каго* (разм.) — сілай прымусіць зрабіць што-н.

**СЦЕНКА**[2], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Шырокая мяжа паміж палямі.

**СЦЕННЫ** *гл.* сцяна.

**СЦЕНЬ**, сцені, *м.* (разм.). Цень, прывід. *У старым замку блукаюць сцені.*

**СЦЕПАНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нёмся, -няцеся, -нуцца; -ніся; *зак.* (разм.). Раптам здрыгануцца, скалануцца. *С. ад холаду.* ‖ *незак.* **сцепацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**СЦЕПАНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -нём, -няце, -нуць; -ні; *зак.* (разм.). Зрабіць рэзкі рух плячыма. *Пасажыр сцепануў плячом у адказ. Ад нечаканасці яго сцепанула* (безас.). ‖ *незак.* **сцепаць**, -аю, -аеш, -ае.

**СЦЕРАГЧЫ**, -рагу, -ражэш, -ражэ; -ражом, -ражаце, -рагуць; сцярог, сцераглá, -ло; -ражы; -ражоны; *незак., каго-што.* **1.** Вартаваць што-н. *С. коней. С. пасевы ад птушак.* **2.** і *з дадан.* Уважліва назіраць, наглядаць за кім-, чым-н. *С., каб хто не парушыў парадку ў класе.* **3.** Высочваць каго-, што-н., падпільноўваць. *Паляўнічы сцеражэ звера.* **4.** *перан.* Не даваць парушыць, сачыць за захаванасцю чаго-н. *С. сон дзіцяці.*

**СЦЕРАГЧЫСЯ**, -рагуся, -ражэшся, -ражэцца; -ражомся, -ражацеся, -рагуцца; сцярогся, сцераглася, -лося; -ражыся; *незак., каго-чаго* і *без дап.* Прымаць якія-н. меры перасцярогі; быць асцярожным. *С. машын на дарозе.*

**СЦЕРВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў (разм., лаянк.). Подлы чалавек, нягоднік.

**СЦЕРЛЯДЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Рыба сямейства асятровых з вельмі якасным мясам. ‖ *прым.* **сцярляджы**, -ая, -ае. *Сцярляджая ікра.*

**СЦЕРЦІ**, сатру, сатрэш, сатрэ; сатром, сатраце, сатруць; сцёр, сцерла; сатры; сцёрты; *зак., што.* **1.** Тручы, зняць, счысціць што-н. з паверхні; выцерці; зрабіць чыстым. *С. пыл са стала.* **2.** Выціраючы, саскрэбваючы, знішчыць (што-н. напісанае, намаляванае і пад.). *С. малюнак гумкаю.* **3.** Дотыкам, трэннем пашкодзіць, зрабіць рану на чым-н. *С. нагу.* **4.** Тручы, раздрабніць,ператварыць у аднародную масу. *С. перац на парашок.* **5.** Трэннем апрацаваць (пра лён). ‖ *незак.* **сціраць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **сціранне**, -я, *н.*

**СЦЕРЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., сатрэцца; сцёрся, сцерлася; *зак.* **1.** Знікнуць ад выцірання, трэння або ўздзеяння якіх-н. знешніх прычын. *Надпіс на пліце сцёрся. Лямка ад сумкі сцерлася.* **2.** *перан.* Прапасці, знікнуць. *Многія даты сцерліся ў памяці.* **3.** Ад доўгага ўжывання, трэння стаць тонкім, зменшыцца ў аб'ёме, атрымаць пашкоджанне. *Брусок сцёрся. Манета сцерлася.* ‖ *незак.* **сцірацца**, -аецца.

**СЦЁБАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Сцёбаць сябе або адзін аднаго чым-н. гнуткім. *С. венікам у лазні.*

**СЦЁБАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго-што.* Біць чым-н. гнуткім. *С. па спіне. С. пугай. С. дубцом па траве.* **2.** *каго-што.* Хвастаць таго, хто рухаецца праз зараснік (пра галіны). *Галіны бяроз балюча сцёбалі па тварах.* **3.** *што.* Піць у вялікай колькасці (разм., неадабр.). *С. гарэлку.* ‖ *аднакр.* **сцёбнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *звар.* **сцёбацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 знач.). ‖ *наз.* **сцёбанне**, -я, *н.*

**СЦЁБНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак. гл.* сцёбаць *і* сцябаць.

**СЦЁК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* сцячы. **2.** Месца, прыстасаванне, па якім сцякае вада. *Памыйны с. Прамысловыя сцёкі.* ‖ *прым.* **сцёкавы**, -ая, -ае. *Сцёкавая труба.*

**СЦІЖМА**, -ы, *ж.* (разм.). Вялікая колькасць, мноства, безліч. *С. машын на пераездзе.*

**СЦІЗОРЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Невялікі складны ножык. *С. з штопарам і шылам.*

**СЦІЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Тонкая подсцілка, якая ўкладваецца ў абутак. ‖ *прым.* **сцілкавы**, -ая, -ае.

**СЦІНАННЕ** *гл.* сцяць[2].

**СЦІНАЦЦА** *гл.* сцяцца[1-2].

**СЦІНАЦЬ** *гл.* сцяць[1-2].

**СЦІПЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Стрыманы ў паводзінах, абыходжанні, просты і прыстойны, пазбаўлены ганарыстасці. *С. чалавек. С. працаўнік.* **2.** *перан.* Абмежаваны, нязначны, невялікі, якога ледзь хапае. *Сціплая зарплата. Сціплыя вынікі працы.* **4.** Просты, звычайны, без прэтэнзій на раскошу. *Сціплая мэбля. Сціпла* (прысл.) *апранацца.* ‖ *наз.* **сціпласць**, -і, *ж.*

**СЦІРТА**, -ы, *ДМ* -рце, *мн.* -ы, сцірт *і* сціртаў, *ж.* Вялікі стог сена, саломы, снапоў збожжа і пад., прызначаны для захавання пад адкрытым небам. *Салома ў сціртах.* ‖ *прым.* **сціртавы**, -ая, -ае.

**СЦІРТАВАЦЬ**, -тую, -туеш, -туе, -туй; -таваны; *незак., што.* Складваць у сцірты. ‖ *зак.* **засціртаваць**, -тую, -туеш, -туе; -туй; -таваны. ‖ *наз.* **сціртаванне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **сціртавальны**, -ая, -ае.

**СЦІСЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Выкладзены коратка, лаканічны. *Сціслая характарыстыка каго-, чаго-н.* **2.** Кароткі ў часе. *У сціслыя тэрміны.* **3.** Спорны, дробны, з невялікімі прамежкамі паміж літарамі, словамі (пра почырк, тэкст). ‖ *наз.* **сціснасць**, -і, *ж.*

**СЦІСНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Зменшыцца ў аб'ёме пад націскам. *Спружына сціснулася.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Сабрацца ў адным месцы, стоўпіцца. *Сціснуліся, як селядцы ў бочцы.* **3.** Сабрацца ў камяк, скурчыцца, сагнуцца. *С. ад нечаканасці. С. ад страху.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Адчуць унутраны цяжар (у горле, грудзях). *Сэрца сціснулася*

*лася ад жалю.* **5.** Шчыльна злучыцца (пра губы, пальцы і пад.). *Рукі сціснуліся ў кулакі.* ‖ *незак.* **сціска́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **сціска́нне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**СЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** Ціскам зменшыць аб'ём чаго-н., шчыльна злучыць што-н. *С. пружыну.* **2.** *каго-што.* Моцна ахапіць каго-, што-н.; здушыць. *С. у абдымках. С. у чарзе.* **3.** Здушыць, сцясніць (горла, грудзі). *Спазмы сціснулі горла.* **4.** *перан.* Выклікаць адчуванне болю, цяжару (на душы, у сэрцы). *Боль сціснуў сэрца.* **5.** *што.* Шчыльна злучыўшы, прыціснуць адно да аднаго. *С. зубы.* ‖ *незак.* **сціска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **сціска́нне**, -я, *н.*

**СЦІ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; сціх, -хла; -ні; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра гукі, шумы: перастаць гучаць, стаць нячутным. *Крокі сціхлі. Гул аўтобуса сціх.* **2.** Перастаць гаварыць, спяваць, крычаць; замоўкнуць. *Гутарка пад акном сціхла. Дзяўчаты сціхлі.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра з'явы прыроды: паменшыцца ў сіле; спыніцца. *К вечару вецер сціх.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Суняцца (пра боль і пад.). *Зубны боль сціх.* ‖ *незак.* **сціха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СЦІ́ШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *зак.* **1.** Стаць больш павольным (пра рух машыны). *Машыны сцішыліся.* **2.** Пра гукі, шумы: стаць цішэйшым, бясшумным; сціхнуць. *У зале сцішыліся гукі акардэона. Перад навальніцай усё сцішылася.* **3.** Перастаць хвалявацца; супакоіцца, змоўкнуць. *Дзіця паплакала і сцішылася.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра з'явы прыроды: паменшыцца ў сіле; спыніцца. *Раніцай дождж сцішыўся.* **5.** Прыйсці ў стан нерухомасці, спакою. *Мора к вечару сцішылася.* ‖ *незак.* **сці́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **сціша́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СЦІ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць больш павольным рух, ход і пад.; затрымаць, прыцішыць каго-, што-н. *Машына сцішыла ход. С. хуткасць матацыкла.* **2.** *каго (што).* Супакоіць, угаварыць каго-н. перастаць шумець, плакаць і пад. *С. дзіця.* **3.** *што.* Зрабіць менш адчувальным, аслабіць што-н. *С. боль. С. гнеў* (прыглушыць). ‖ *незак.* **сціша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СЦІШЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра гукі, шумы: перастаць чуцца, стаць нячутным. *Рыканне кароў сцішэла. У лесе сцішэла* (безас.). **2.** Супакоіцца, перастаць перажываць, хвалявацца і пад. *Вярнуўся сын, і маці сцішэла.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра з'явы прыроды: паменшыцца ў сіле, аслабець. *Снег сцішэў. Мора сцішэла* (супакоілася). **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Крыху ўціхнуць, перастаць балець. *Боль зубоў сцішэў.*

**СЦЭ́ДЖВАННЕ** *гл.* сцадзіць.

**СЦЭ́ДЖВАЦЬ** *гл.* сцадзіць.

**СЦЭМЕНТАВА́ЦЬ** *гл.* цэментаваць.

**СЦЭ́НА**, -ы, *мн.* -ы, сцэн, *ж.* **1.** Спецыяльная пляцоўка, на якой адбываюцца спектаклі, канцэрты, выступленні і інш., а таксама ўвогуле сам тэатр, тэатральная, эстрадная дзейнасць. *Падняцца на сцэну. Майстры сцэны.* **2.** Асобная частка акта тэатральнай п'есы, эпізод у п'есе, рамане, аповесці, карціне. **3.** Здарэнне, эпізод, якія можна назіраць у жыцці. *Сцэна з жыцця студэнтаў.* **4.** Вострая, рэзкая размова (разм.). *С. рэўнасці.* ‖ *памянш.* **сцэ́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (да 2 і 3 знач.). ‖ *прым.* **сцэні́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СЦЭНАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Мастацтва афармлення тэатральнай сцэны, а таксама само такое афармленне. ‖ *прым.* **сцэнаграфі́чны**, -ая, -ае.

**СЦЭНА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Літаратурна-драматычны твор з падрабязным апісаннем дзеяння, на аснове якога можа ставіцца кінафільм, тэатральная пастаноўка і інш. *С. фільма «Альпійская балада».* **2.** Спіс дзейных асоб п'есы з указаннем парадку і часу выхаду на сцэну (спец.). **3.** Загадзя распрацаваны дэталёвы план правядзення якога-н. відовішча, увогуле (перан.) ажыццяўлення чаго-н. *С. фестывалю.* **4.** *перан.* План ажыццяўлення чаго-н.; прагноз. *Дзейнічаць па сцэнарыі.* ‖ *прым.* **сцэна́рны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *С. матэрыял. С. аддзел.*

**СЦЭНАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтар сцэнарыя (кінафільма, свята, фестывалю і пад.). ‖ *ж.* **сцэнары́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* ‖ *прым.* **сцэнары́сцкі**, -ая, -ае.

**СЦЭНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сцэна. **2.** Які мае патрэбныя для сцэны, тэатра якасці; прыгодны для сцэны, тэатра. *С. твор.* ‖ *наз.* **сцэні́чнасць**, -і, *ж.*

**СЦЭНО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тэатральны мастак, спецыяліст па сцэнаграфіі.

**СЦЮ́АРД**, -а, *М* -рдзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Афіцыянт на марскім пасажырскім судне ці пасажырскім самалёце.

**СЦЮАРДЭ́СА**, -ы, *мн.* -ы, -дэ́с, *ж.* Бортправадніца на самалётах.

**СЦЮДЗЁНЫ**, -ая, -ае. Вельмі халодны. *С. вецер.*

**СЦЮ́ЖА**, -ы, *ж.* Моцны холад, мароз. *Студзеньская с.*

**СЦЯБА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак., каго (што).* Біць чым-н. гнуткім, хвастаць. *С. дубцом.* ‖ *зак.* **высцебаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *аднакр.* **сцебану́ць**, -ну́, -нёш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты *і* **сцёбнуць**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты. ‖ *наз.* **сцяба́нне**, -я, *н.*

**СЦЯБЛІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -лі́н, *ж.* (разм.). Тое, што і *сцябло* (у 1 знач.). ‖ *памянш.* **сцяблі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.; прым.* **сцяблі́нкавы**, -ая, -ае.

**СЦЯБЛІ́НІСТЫ**, -ая, -ае. Са сцяблом, які мае форму сцябла (у 1 знач.).

**СЦЯБЛІ́СТЫ**, -ая, -ае. З вялікім сцяблом або вялікай колькасцю сцёблаў. *Сцяблістая расліна.* ‖ *наз.* **сцяблі́стасць**, -і, *ж.*

**СЦЯБЛО́**, -а́, *мн.* сцёблы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) сцяблы́, сцёблаў, *н.* Надземная частка травяністай расліны, якая нясе на сабе лісце, кветкі і плады. *С. бобу.* ‖ *прым.* **сцябло́вы**, -ая, -ае.

**СЦЯГ**, -а, *мн.* сцягі́, -о́ў, *м.* **1.** Палотнішча ўстаноўленага памеру, формы і колеру (колераў), звычайна з эмблемай дзяржавы, вайсковай часці, арганізацыі і інш., якое выкарыстоўваецца ў якасці іх сімвалу і, як правіла, прымацоўваецца адным бокам да дрэўка або шнура. *Дзяржаўны с. Беларусі. Палкавы с. С. Перамогі.* **2.** Кавалак тканіны пэўнай формы і афарбоўкі, які служыць знакам чаго-н., упрыгожаннем і інш. *Зялёны с. Махаць сцягамі.* ◊ **Пад сцягам міру** — у імя міру. **Трымаць высока сцяг** (чаго-н.) — захоўваць якія-н. ідэалы, запаветы (высок.).

**СЦЯГАНО́СЕЦ**, -но́сца, *мн.* -но́сцы, -но́сцаў, *м.* Той, хто нясе або носіць сцяг. *Сцяганосцы воінскай славы* (перан.; высок.).

**СЦЯГА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). **1.** Схадзіць куды-н. і вярнуцца назад. *С. ў краму.* **2.** Знасіцца. *Паліто ўжо сцягалася.*

**СЦЯГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Пра ўсё, многае: цягнучы, несучы, сабраць у адно месца. *С. хворaст у кучу.* **2.** Знасіць (разм.). *С. касцюм за сезон.*

**СЦЯГНО́**, -а́, *мн.* сцёгны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) сцягны́, сцёгнаў, *н.* Частка нагі (у жывёл — задняй канечнасці) ад тазасцегнавога да каленнага сустава. ‖ *прым.* **сцегнавы́**, -а́я, -о́е. *Сцегнавая косць.*

**СЦЯГНУ́ЦЦА**, сцягну́ся, сця́гнешся, сця́гнецца; сцягні́ся; *зак.* **1.** Туга падперазаць сябе чым-н. *С. дзягай.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Сабрацца, сканцэнтравацца ў адным месцы (пра многіх). *Войскі сцягнуліся да пераправы.* **3.** Пайсці куды-н. (разм.). *Сцягнуўся недзе на цэлы дзень.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра што-н. з абутку: з цяжкасцю быць знятым. *Бот ледзь сцягнуўся з нагі.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Здоўжыцца, марудна прайсці (разм.). *У трывожным чаканні сцягнулася ноч.* ‖ *незак.* **сця́гвацца**, -ваецца.

**СЦЯГНУ́ЦЬ**, сцягну́, сця́гнеш, сця́гне; сцягні́; сця́гнуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Цягнучы, зняць каго-, што-н. адкуль-н. *С. коўдру з ложка. С. боты з ног.* **2.** *каго-што.* Цягнучы, перамясціць у другое месца. *С. валун з дарогі.* **3.** *што.* Звалачы ў адно месца (пра многае). *С. жэрдзе ў кучу.* **4.** *каго-што.* Сабраць, сканцэнтраваць у адным месцы. *С. атрады да лесу.* **5.** *што.* Нацягваючы, зблізіць, злучыць канцы чаго-н. *С. канцы лука.* **6.** *што.* Знесці што-н. далёка. *Дзеці сцягнулі кудысьці граблі.* **7.** *каго-што.* Украсці (разм.). *С. кнігу ў суседа. Ваўкі сцягнулі авечку.* **8.** *каго-што.* Туга перавязаць, сціскаючы што-н. *С. шнуроўку.*

*С. паскам сукенку.* **9.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каго-што.* Пра сутаргу: звесці, скурчыць (разм., безас.). *Сутаргай сцягнула нагу.* **10.** часцей *безас., што.* Пачаць зацвердзяваць. *На дварэ мароз, гразь сцягнула.* **11.** *безас., што.* Пра ваду: зменшыцца. *Пасля паводкі ваду сцягнула.* ‖ *незак.* **сцяѓваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—5, 8 і 9 знач.). ‖ *наз.* **сцяѓванне**, -я, *н.* (да 1—5 і 8 знач.).

**СЦЯГНЯ́К**, сцегняка́, *мн.* сцегнякі́, сцегнякóў, *м.* **1.** Тое, што і *сцягно.* **2.** Гатунак мяса — верхняя частка задняй ляжкі, кумпяк. ‖ *прым.* **сцягня́чны**, -ая, -ае.

**СЦЯЖО́К**, -жка́, *мн.* -жкі́, -жкóў, *м.* Тое, што і *сцяг* (у 2 знач.). ‖ *прым.* **сцяжко́вы**, -ая, -ае.

**СЦЯЖЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -жы́н, *ж.* (разм.). Сцежка. ‖ *памянш.* **сцяжы́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**СЦЯКА́ЦЦА** *гл.* сцячыся.

**СЦЯКА́ЦЬ**, *гл.* сцячы.

**СЦЯЛЕ́ЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -жыцца; *зак.* Пра калёсы: зляцець з перадка. ‖ *незак.* **сцяле́жвацца**, -аецца.

**СЦЯЛЕ́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* Пра калёсы: сарваць з перадка. ‖ *незак.* **сцяле́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СЦЯ́МІЦЬ** *гл.* цяміць.

**СЦЯМНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў цёмным, пацямнеў. *С. твар.*

**СЦЯМНЕ́ЦЦА** *гл.* цямнецца.

**СЦЯМНЕ́ЦЬ** *гл.* цямнець.

**СЦЯНА́**, -ы, *мн.* сце́ны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) сцяны́, сцен, *ж.* **1.** Вертыкальная частка будынка, памяшкання. *Цагляная с. Драўляная с.* **2.** Высокая агароджа. *Гарадская с.* **3.** *чаго* або *якая.* Стромая бакавая паверхня чаго-н. *С. акопа.* **4.** *адз., перан., чаго.* Суцэльная маса чаго-н., якая ўтварае перашкоду, заслону для чаго-н. *С. з церняў. С. дажджу.* ◊ **Ілбом сцяны не праб'еш** (разм.) — пра марныя спробы дасягнуць чаго-н. **І сцены вушы маюць** (разм.) — папярэджанне аб асцярожнасці, бо могуць падслухаць. **Лезці на сцяну** (разм., неадабр.) — моцна раздражняцца. **Свае сцены** (разм.) — пра свой дом. **Ставіць да сцяны** *каго* (разм.) — расстрэльваць. **Сцяна да сцяны** (разм.) — у непасрэднай блізкасці, па суседстве (жыць, знаходзіцца і пад.). **Як за каменнай сцяной** (разм.) — пад надзейнай аховай (жыць, адчуваць сябе). **Як у сцяну гарохам** *каму што* (разм., неадабр.) — не рэагуе, не звяртае ўвагі на сказанае. ‖ *памянш.* **сце́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **сце́нны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.) *і* **сценавы́**, -а́я, -óе (да 1 і 2 знач.). *Сценная ніша. Сценавыя блокі.*

**СЦЯРВЯ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Драпежная птушка атрада сокалападобных. *Арол-с.* **2.** Наогул жывёліна, якая харчуецца падлай. *Мядзведзь-с.*

**СЦЯРЛЯ́ДЖЫ** *гл.* сцерлядзь.

**СЦЯРПЕ́ЦЬ**, сцярплю́, сце́рпіш, сце́рпіць; сцярпі́м, сцерпіце́, сцярпя́ць; сцярпі́; *зак., што.* Цярпліва вынесці, вытрымаць што-н. *С. абразу.*

**СЦЯСНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, сцесніце́, -ня́ць; -нёны; *зак.* **1.** *гл.* цясніць. **2.** *каго (што).* Прымусіць каго-н. пацясніцца. *С. суседзяў.* ‖ *незак.* **сцясня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 2 знач.).

**СЦЯ́ЦЦА**[1], сатну́ся, сатне́шся, сатне́цца; сатнёмся, сатняце́ся, сатну́цца; сця́ўся, сцяла́ся, -ло́ся; сатні́ся; *зак.* Счапіцца ў бойцы, сварцы. ‖ *незак.* **сціна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СЦЯ́ЦЦА**[2], сатну́ся, сатне́шся, сатне́цца; сатнёмся, сатняце́ся, сатну́цца; сця́ўся, сцяла́ся, -ло́ся; сатні́ся; *зак.* (разм.). **1.** Сабрацца ў камяк, скурчыцца. *С. ад холаду.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Шчыльна злучыцца, сціснуцца (пра губы, зубы і пад.). *Губы сцяліся ад болю.* **3.** *перан.* Сціснуцца, выклікаўшы цяжкае дыханне (пра горла, грудзі і пад.). *Унутры ўсё сцялася. Сцялося ад крыўды сэрца.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Зацвярдзець пад уздзеяннем марозу. *Гразь к вечару сцялася.* ‖ *незак.* **сціна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**СЦЯЦЬ**[1], сатну́, сатне́ш, сатне́; сатнём, сатняце́, сатну́ць; сця́ў, сцяла́, -ло́; сатні́; сця́ты; *зак., каго-што.* Зняць, аддзяліць чым-н. вострым, ссячы. *С. галаву.* ‖ *незак.* **сціна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СЦЯЦЬ**[2], сатну́, сатне́ш, сатне́; сатнём, сатняце́, сатну́ць; сця́ў, сцяла́, -ло́; сатні́; сця́ты; *зак., што* (разм.). **1.** Абхапіўшы, сціснуць. *С. рукі рамянямі.* **2.** Шчыльна злучыць (губы, зубы і пад.). *С. губы да болю.* **3.** Сціснуць (грудзі, горла), перашкаджаючы дыхаць. *Нешта сцяло грудзі, пераняло дыханне.* **4.** *безас.* Пра мароз: сцягнуць, схапіць. *Вечарам ваду сцяло.* ‖ *незак.* **сціна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **сціна́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**СЦЯЧЫ́**, сцяку́, сцячэ́ш, сцячэ́; сцячóм, сцечаце́, сцяку́ць; сцёк, сцякла́, -ло́; сцячы́; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра вадкасць: збегчы па нахіленай паверхні ўніз. **2.** Знемагчы ад страты крыві. *Ранены сцёк крывёю.* ‖ *незак.* **сцяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**СЦЯЧЫ́СЯ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., сцячэ́цца, сцяку́цца; сцёкся, сцякла́ся, -ло́ся; *зак.* **1.** Пра патокі, вадкасць: злучыцца. *Ручаі сцякліся.* **2.** *перан.* Пра людзей: сысціся, з'ехацца ў адно месца. *На плошчу сцяклося многа народу.* ‖ *незак.* **сцяка́цца**, -а́ецца.

**СЧАКА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* (разм.). **1.** Стаміцца ад доўгага чакання. *С. пісьма з фронту.* **2.** Дачакацца. *Пайду да сястры, с. не магу, каб пабачыць.*

**СЧАКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* Пачакаць некаторы час. *Трэба с., пакуль схлыне натоўп.*

**СЧА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што* (спец.). Змацаваць, злучыць чалкай, канатам. *С. баржы.* ‖ *незак.* **сча́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **сча́льванне**, -я, *н.*

**СЧАПІ́ЦЦА**, счаплю́ся, счэ́пішся, счэ́піцца; *зак.* **1.** Злучыцца, зачапіўшыся адзін за аднаго. *Шасцярні счапіліся.* **2.** *перан., з кім і без дап.* Пачаць спрачацца, схапіцца ў бойцы (разм.). *Дзеці счапіліся за цацку.* ‖ *незак.* **счэ́плівацца**, -ваюся, -ваешся, -ваецца. ‖ *наз.* **счэ́пліванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**СЧАПІ́ЦЬ**, счаплю́, счэ́піш, счэ́піць; счэ́плены; *зак., што.* **1.** Злучыць, прымацаваўшы адно да аднаго, зачапіўшы адно за адно. *С. вагоны.* **2.** Моцна злучыць (пальцы, рукі; разм.). *Настылыя пальцы не надта счэпіш.* **3.** *з чаго.* Адчапіць, зняць (разм.). *С. вядро з крука.* **4.** Сшыць, прышыць на скорую руку (разм.). *С. за вечар спадніцу.* ‖ *незак.* **счэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **счапле́нне**, -я, *н.*, **счэ́пліванне**, -я, *н. і* **счэп**, -у, *м.* ‖ *прым.* **счэ́пны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СЧАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак., каго-што* (разм.). Зачараваць.

**СЧАРВЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -е́е; *зак.* (разм.). Тое, што і *счарвівець.*

**СЧАРВІ́ВЕЦЬ** *гл.* чарвівець.

**СЧАРНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў чорным, пачарнелы.

**СЧАРНЕ́ЦЬ** *гл.* чарнець.

**СЧАРНІ́ЦЬ** *гл.* чарніць.

**СЧАРСЦВЕ́ЦЬ** *гл.* чарсцвець.

**СЧАРЦІ́ЦЬ**, счарчу́, счэ́рціш, счэ́рціць; счэ́рчаны; *зак., што.* **1.** Скапіраваць чарцёж, план і пад. *С. схему.* **2.** Чэрцячы, зрасходаваць (разм.). *С. усе лісты паперы.* ‖ *незак.* **счэ́рчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**СЧАСА́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., счэ́шацца; *зак.* **1.** Сысціцца, зняцца пры часанні. *Счасалася два кілаграмы пуху.* **2.** Быць счасаным (*гл.* счасаць[1] у 2 знач.). *Уся воўна счасалася.*

**СЧАСА́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., счэ́шацца; *зак.* **1.** Стаць счасаным (пра верхні слой дрэва і пад.). *Кара бярозы добра счасалася.* **2.** Стаць стаптаным (пра абцасы і пад.). *Абцасы счасаліся.* ‖ *незак.* **счэ́свацца**, -аецца.

**СЧАСА́ЦЬ**[1], счашу́, счэ́шаш, счэ́ша; счашы́; счаса́ны; *зак., што.* **1.** Зняць часаннем, вычасаць. *С. пух з труса.* **2.** Апрацаваць, ачысціць часаннем (лён, шэрсць і пад.). *С. воўну.* ‖ *незак.* **счэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **счэ́сванне**, -я, *н.*

**СЧАСА́ЦЬ**[2], счашу́, счэ́шаш, счэ́ша; счашы́; счаса́ны; *зак., што.* **1.** Часаннем зняць верхні слой чаго-н. *С. кару з дрэва.* **2.** Зрасходаваць пры часанні. *С. палена на трэскі.* ‖ *незак.* **счэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **счэ́сванне**, -я, *н.*

**СЧА́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; счах, -хла; -ні; *зак.* (разм.). **1.** Стаць чахлым, змарнець. *Расліны счахлі без вады.* **2.** Схуднець, зрабіцца хворым, слабым. *За адзін год счах чалавек.*

**СЧУЦЬ**, счу́ю, счу́еш, счу́е; счу́ты; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што і з дадан.* Улавіць на слых якія-н. гукі, размову; пачуць. *С. крокі пад акном.* **2.** *што.* Атрымаць звесткі пра

каго-, што-н., даведацца з якіх-н. крыніц. *Счуў я навіну пра сваіх родзічаў.* **3.** *каго.* Пра жывёл: учуць. *Кошка счула мыш і затаілася.* **4.** *перан., што* і *з дадан.* Інтуітыўна прадбачыць. *С. бяду.*

**СЧЫРВАНЕ́ЦЬ** *гл.* чырванець.

**СЧЫ́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Закрэсліць у многіх месцах; у беспарадку пакрэсліць. *С. увесь артыкул.*

**СЧЫ́СЦІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ціцца; *зак.* Сысці пры чыстцы з паверхні (пра слой чаго-н., пра бруд і пад.). *Пляма счысцілася з касцюма.* ‖ *незак.* **счышча́цца**, -аецца.

**СЧЫ́СЦІЦЬ**, счы́шчу, счы́сціш, счы́сціць; счы́шчаны; *зак., што.* Чысцячы, зняць з паверхні чаго-н. *С. фарбу з шыбы.* ‖ *незак.* **счышча́ць**, -аю, -аеш, -ае.

**СЧЫТА́ЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *што.* Распазнаць даныя, атрымаць ці здабыць інфармацыю, запісаную на якім-н. носьбіце. *С. штрыхавы код тавару. С. файл.* **2.** *што з чым.* Чытаючы, параўнаць і зверыць (які-н. тэкст). *С. гранкі з рукапісам.* ‖ *незак.* **счы́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **счы́тванне**, -я, *н.* і **счы́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**СЧЫ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто счытвае які-н. тэкст. ‖ *ж.* **счы́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**СЧЭ́ЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). Зачахнуць, заняпасці. *Яна, відаць, не акрыяе, так і счэзне.*

**СЧЭП**, -а і -у, *м.* **1.** -у, *гл.* счапіць. **2.** -а, *мн.* -ы, -аў. Прыстасаванне, пры дапамозе якога што-н. счэпліваюць. *Вагонныя счэпы.*

**СЧЭ́ПЛІВАННЕ** *гл.* счапіцца.

**СЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *гл.* счапіцца.

**СЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *гл.* счапіць.

**СЧЭ́ПНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* счапіць. **2.** Такі, які счапляецца, які можна счапіць. *Счэпнае прыстасаванне.*

**СЧЭ́ПШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Рабочы, які счэплівае вагоны. ‖ *ж.* **счэ́пшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -шчыц.

**СЧЭ́РЧВАЦЬ** *гл.* счарціць.

**СЧЭ́СВАННЕ**[1] *гл.* счасаць[1].

**СЧЭ́СВАННЕ**[2] *гл.* счасаць[2].

**СЧЭ́СВАЦЦА**[1] *гл.* счасацца[1].

**СЧЭ́СВАЦЦА**[2] *гл.* счасацца[2].

**СЧЭ́СВАЦЬ**[1] *гл.* счасаць[1].

**СЧЭ́СВАЦЬ**[2] *гл.* счасаць[2].

**США́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Пашкодзіць шарканнем. *С. падлогу.*

**СШАТКАВА́ЦЬ** *гл.* шаткаваць.

**СШАТРАВА́ЦЬ** *гл.* шатраваць.

**СШЫ́ТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Сшытыя лісты чыстай паперы ў вокладцы. *Сшыткі ў клетку. Агульны с.* **2.** Складзены, але не разрэзаны друкаваны аркуш у кнізе, брашуры і пад. (спец.). ‖ *прым.* **сшы́ткавы**, -ая, -ае.

**СШЫЎНЫ́**, -ая, -ое. Пашыты не з цэлага кавалка, са швом. *С. каўнер.*

**СШЫЦЬ**, сшы́ю, сшы́еш, сшы́е; сшы́ты; *зак., што.* **1.** *гл.* шыць. **2.** Злучыць шыццём. *С. два кліны скуры.* ‖ *незак.* **сшыва́ць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.). ‖ *наз.* **сшыва́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.) і **сшы́ўка**, -і, *ДМ* сшы́ўцы, *ж.* (да 2 знач.).

**СШЭ́РХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Пасіверany (пра скуру на твары, руках і пад.). *С. твар.* **2.** Здранцвелы, знямелы, зацёкшы. *Нага сшэрхла.* ‖ *наз.* **сшэ́рхласць**, -і, *ж.*

**СШЭ́РХНУЦЬ** *гл.* шэрхнуць.

**СЫВАРАТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Вадкасць, што атрымліваецца пры згортванні крыві па-за арганізмам, а таксама назва некаторых лекавых прэпаратаў з крыві. *Процідыфтэрыйная с.* ‖ *прым.* **сыва́ратачны**, -ая, -ае.

**СЫГРА́НЫ**, -ая, -ае. Які вызначаецца зладжанасцю ў працэсе ігры. *С. аркестр. Сыграная футбольная каманда.* ‖ *наз.* **сы́гранасць**, -і, *ж.*

**СЫГРА́ЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Дасягнуць зладжанасці ў сумеснай гульні. *Футбольная каманда сыгралася.* ‖ *незак.* **сы́грывацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **сы́граўка**, -і, *ДМ* -раўцы, *мн.* -і, -равак, *ж.*

**СЫГРА́ЦЬ** *гл.* іграць.

**СЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Утвараць глухія гукі, якія нагадваюць працяжнае вымаўленне гука «с». *Гусі выцягнулі шыі і пачалі с.* **2.** *перан.* Гаварыць здушаным ад раздражнення голасам (разм.). **3.** *перан.* Злоснічаць, выказваць сваё незадавальненне (разм.). *С. на мужа.* ‖ *аднакр.* **сы́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (разм.). ‖ *наз.* **сы́канне**, -я, *н.* і **сык**, -у, *м.* (разм.).

**СЫН**, -а, *мн.* сыны́, -о́ў, *м.* **1.** Асоба мужчынскага полу ў адносінах да сваіх бацькоў. *Малодшы с. вучыцца ў школе.* **2.** звычайна *мн., перан., чаго.* Чалавек як носьбіт характэрных рыс свайго асяроддзя, грамадства, народа і пад. (высок.). *Сыны Беларусі. Сыны свайго часу.* ‖ *ласк.* **сыно́к**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.* (да 1 знач.), **сыно́чак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **сыно́ўскі**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Сыноўскія абавязкі.*

**СЫП**, -у, *м.* Дробныя плямкі ці прышчыкі, якія з'яўляюцца на целе пры некаторых хваробах. *Алергічны с.*

**СЫ́ПАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -плецца; сы́пся; *незак.* **1.** Пра што-н. сыпкае, дробнае або пра многія прадметы: падаць, валіцца; асыпацца; ляцець, разлятацца ва ўсе бакі; выпадаць. *Са страхі сыплецца снег. З торбы сыплецца мука.* **2.** *перан.* Пра частыя гукі, словы: чуцца, распаўсюджвацца, гучаць. *Услед сыпаліся жарты.* **3.** Пра тканіну: разбурацца ў выніку выпадання нітак па абрэзаным краі (разм.). **4.** *перан.* Імкліва ў спеху бегчы. *З узгорка сыпаліся дзеці.*

**СЫ́ПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; сып; сы́паны; *незак.* **1.** *што.* Прымушаць падаць куды-н., паступова выпускаючы (што-н. сыпкае ці дробнае). *С. крупы курам. С. бульбу ў кучу.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра дробны, часты дождж, снег: ісці, падаць. *З вечара сыпаў калючы снег.* **3.** *перан., што, чым.* Накіроўваць на каго-н. у вялікай колькасці; надзяляць, асыпаць. *С. удары.* **4.** *перан., што, чым* і *без дап.* Гаварыць хутка і многа (разм.). *С. жартамі.* **5.** *перан.* Імкліва бегчы, ісці, ехаць (разм.). *З хаты сыплюць дзеці.* ‖ *аднакр.* **сы́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні.

**СЫ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* Тое, што і *сып.*

**СЫ́ПКІ**, -ая, -ае. Які складаецца з дробных часцінак, не счэпленых адна з адной, які мае ўласцівасць рассыпацца. *Сыпкія рэчывы.* ‖ *наз.* **сы́пкасць**, -і, *ж.*

**СЫПНАТЫФО́ЗНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да сыпнога тыфу. *С. вірус.* **2.** Хворы на сыпны тыф. *Палата для сыпнатыфозных* (наз.).

**СЫ́ПНУЦЬ** *гл.* сыпаць.

**СЫПНЫ́**. У выразе: **сыпны тыф** — заразная хвароба, тыф, суправаджаецца з'яўленнем на целе хворага сыпу, плям.

**СЫПНЯ́К**, -у́, *м.* (разм.). Сыпны тыф.

**СЫПУ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Тое, што і *сыпкі. С. пясок.* **2.** Які рассыпаецца; пушысты, лёгкі (пра валасы). *Пасля мыцця валасы робяцца сыпучымі.* ‖ *наз.* **сыпу́часць**, -і, *ж.*

**СЫР**, -у, *мн.* сыры́, -о́ў, *м.* Харчовы прадукт, які робіцца з малака, заквашанага пэўным спосабам. *Плаўлены с. Клінковы с. Галандскі с.* ◊ **Плаваць (качацца) як сыр у масле** — жыць у дастатку, раскошы. ‖ *памянш.* **сыро́к**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* ‖ *прым.* **сы́рны**, -ая, -ае.

**СЫРА**[1]... Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) сыры, у сырым выглядзе, напр.: *сыравялены, сыравэнджаны;* 2) які падвяргаўся толькі першаснай апрацоўцы, напр. *сырадутны* (старажытны спосаб вырабу жалеза непасрэдна з руды; спец.).

**СЫРА**[2]... Першая частка складаных слоў са знач.: які адносіцца да сыру, сыраробства, напр.: *сыравар, сыраробны.*

**СЫРАВА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па сыраварстве.

**СЫРАВА́РСТВА**, -а, *н.* Выраб сыру як галіна прамысловасці. ‖ *прым.* **сырава́рны**, -ая, -ае. *С. завод.*

**СЫРАВІ́НА**, -ы, *ж., зб.* Матэрыял, прызначаны для далейшай прамысловай апрацоўкі. *С. тэкстыльнай прамысловасці.* ‖ *прым.* **сыраві́нны**, -ая, -ае. *Сыравінныя рэсурсы.*

**СЫРАДО́Й**, -ю, *м.* Толькі што надоенае малако. ‖ *прым.* **сырадо́йны**, -ая, -ае.

**СЫРАДЭ́ЛЯ**, -і, *ж.* Аднагадовая кармавая расліна сямейства бабовых. ‖ *прым.* **сырадэ́левы**, -ая, -ае.

**СЫРАЕ́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* Ядомы грыб з крохкай пласціністай шапкай, звычайна каляровай афарбоўкі. ‖ *прым.* **сырае́жкавы**, -ая, -ае.

**СЫРАКВА́ША**, -ы, *ж.* Густое кіслае малако. ‖ *прым.* **сыраква́шны**, -ая, -ае.

**СЫ́РАМЯЦЬ**, -і, *ж.*, таксама *зб.* Нядубленая скура (рагатай жывёлы, свіней, ла-

сёў), якая ідзе на конскую збрую і розныя тэхнічныя вырабы. ‖ *прым.* **сырамя́тны**, -ая, -ае. *Сырамятная аброць.*

**СЫРАРО́БСТВА**, -а, *н.* Тое, што і *сыраварства.* ‖ *прым.* **сыраро́бны**, -ая, -ае.

**СЫ́РАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* сыры. **2.** Вільгаць, павышаная вільготнасць у паветры, глебе, памяшканні і пад. *С. у пакоі.*

**СЫРАЯДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Ужыванне ў ежу толькі сырой гародніны, пладоў.

**СЫ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ежа з тварагу, выглядам падобная на аладку. *Сырнікі са смятанай.*

**СЫ́РНЫ** *гл.* сыр.

**СЫРО́ВАТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Вадкасць, якая атрымліваецца пры адтопліванні, адстойванні кіслага малака. ‖ *прым.* **сыро́ватачны**, -ая, -ае.

**СЫРО́К**, -рка́ *і* -рку́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* **1.** -рку́, *гл.* сыр. **2.** -рка́. Невялікі брусочак сыру ці сырковай або тварожнай масы ў індывідуальнай упакоўцы. ‖ *прым.* **сырко́вы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**СЫРЦО́ВЫ** *гл.* сырэц.

**СЫРЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Вільготны, не сухі. *Стаяла восеньская сырая пара.* **2.** Пра прадукты харчавання: не печаны, не вараны, не смажаны і пад. *Сырая бульба. Сырое мяса. Есці моркву ў сырым выглядзе.* **3.** Недаварaны, недапечаны, недасмажаны. *С. пірог.* **4.** *перан.* Не да канца апрацаваны, недароблены. *С. раман.* ‖ *наз.* **сы́расць**, -і, *ж.* (да 1 і 4 знач.).

**СЫРЫ́ЗНА**, -ы, *ж., зб.* (разм.). **1.** Недаспелая садавіна, сырая агародніна. *Наеўся сырызны.* **2.** Што-н. сырое, вільготнае. *Не дровы, а с.* **3.** *перан.* Пра што-н. не апрацаванае як след.

**СЫРЭ́Ц**, -рцу́, *м.* Не да канца выраблены або не ачышчаны прадукт, паўфабрыкат. *Лён-с.* ‖ *прым.* **сырцо́вы**, -ая, -ае.

**СЫРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *незак.* Станавіцца сырым (у 1 знач.). *Памяшканне сырэе.* ‖ *зак.* **адсырэ́ць**, -э́е.

**СЫСКА́ЦЦА**, сышчу́ся, сы́шчашся, сы́шчацца; сышчы́ся; *зак.* (разм.). Знайсціся, адшукацца. *Праз некалькі гадзін сыскаўся сабака.*

**СЫСКА́ЦЬ**, сышчу́, сы́шчаш, сы́шча; сышчы́; сыска́ны; *зак.* **1.** *што з каго.* Прымусіць вярнуць сабе што-н. пазычанае каму-н.; прымусіць заплаціць. *С. сто рублёў. Пасвішчаш, пакуль сышчаш* (прымаўка). **2.** *каго-што.* Знайсці, адшукаць (разм.). *Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль такую пару сыскаў* (з нар.). ‖ *незак.* **сы́скваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **сы́скванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**СЫСУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Дзіцяня млекакормячай жывёліны, якое ссе маці. **2.** Немаўля (разм., жарт.). **3.** *перан.* Малады, нявопытны ў якой-н. справе чалавек. ‖ *памянш.* **сысуно́к**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.*

**СЫСЦІ́**, сыду́, сы́дзеш, сы́дзе; сышо́ў, -шла́, -ло́; сыдзі́; *зак.* **1.** *з чаго.* Ідучы, пакінуць сваё месца, спусціцца. *С. з ганка. С. з лесвіцы.* **2.** *з чаго.* Адысці з месца, пакінуць месца, пераходзячы на іншае. *С. з дарогі на тратуар.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *з чаго.* Выйсці з вытворчасці, быць вырабленым. *З канвеера сышоў тысячны трактар.* **4.** Пайсці куды-н.; пакінуць месца жыхарства, работы. *С. ў краму. С. з дому. С. на заработкі.* **5.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *з каго-чаго.* Знікнуць з паверхні чаго-н. *З твару сышлі болькі. Снег сышоў з узгоркаў.* **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Перастаць ставіцца ў тэатры, дэманстравацца ў кіно. *Спектакль сышоў са сцэны тэатра.* **7.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Закончыцца, скончыцца, прайсці. *Сышлі тыя цяжкія часы. Тэрмін прыёму заявак сышоў.* **8.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра справу, здарэнне і пад.: закончыцца, завяршыцца добра, шчасліва (разм.). *У сямейным жыцці ўсё сышло добра.* **9.** *за каго-што.* Быць прынятым, прызнаным за каго-, што-н. *С. за сястру.* **10.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра газ, пару, ваду і пад.: выйсці, выліцца, выцечы. *Мутная вада сышла з крана. Дым сышоў з пакоя.* ◊ **Сысці з рук** — прайсці беспакарана, без непрыемнасцей. **Сысці ў магілу** (высок.) — памерці. ‖ *незак.* **схо́дзіць** *і* **сыхо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **сход**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1—3 і 5 знач.) *і* **сыхо́джанне**, -я, *н.* (да 1—4, 10 і 11 знач.).

**СЫСЦІ́СЯ**, сыду́ся, сы́дзешся, сы́дзецца; сышо́ўся, -шла́ся, -шло́ся; сыдзі́ся; *зак.* **1.** Дайшоўшы да якога-н. месца, сустрэцца. *С. на скрыжаванні дарог.* **2.** (*1 і 2 ас. адз. звычайна не ўжыв.*). Прыйсці ў адно месца, сабрацца (пра многіх). *На сход сышлася ўся вёска.* **3.** *перан., з кім.* Пасябраваць. *Мы сышліся яшчэ са студэнцкіх гадоў.* **4.** *з кім.* Уступіць у шлюб, наладзіць сумеснае жыццё. **5.** *перан., у чым, чым.* Аказацца аднадушным у чым-н., прыйсці да згоды. *С. думкамі. С. ў цане.* **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Злучыцца, прымкнуўшы шчыльна адзін да аднаго канцамі, краямі. *Маснічыны сышліся. Канцы папругі не сышліся.* **7.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Супасці, аказацца ў адпаведнасці адно з адным. *Паказанні аналізаў сышліся.* ‖ *незак.* **схо́дзіцца** *і* **сыхо́дзіцца**, -джуся, -дзішся, -дзіцца. ‖ *наз.* **сыхо́джанне**, -я, *н.*

**СЫТА́**, -ы́, *ДМ* сыце́, *ж.* Абрадавае беларускае пітво — мёд, разведзены гатаванай вадой. ‖ *прым.* **сыто́вы**, -ая, -ае.

**СЫ́ТНЫ**, -ая, -ае. Пажыўны, які добра насычае. *Сытная вячэра. Сытна* (прысл.) *паснедаць.* ‖ *наз.* **сы́тнасць**, -і, *ж.*

**СЫ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які наеўся, не адчувае голаду; які поўнасцю здаволіўся. *С.* (наз.) *галоднаму не спагадае* (прыказка). *Сытае дзіця.* **2.** Тлусты, укормлены. *С. вяпрук.* **3.** Які ўтрымлівае шмат тлушчу. *Сытае мяса.* **4.** *перан.* Які жыве ў дастатку, у раскошы; заможны, багаты (разм.). *Сытыя дзялкі. Сытае жыццё.* ◊ **Сыты па горла** (разм., неадабр.) — з лішкам, дастаткова каму-н. чаго-н. ‖ *наз.* **сы́тасць**, -і, *ж.*

**СЫХО́ДЖАННЕ** *гл.* сысціся.

**СЫХО́ДЗІЦЦА** *гл.* сысціся.

**СЫХО́ДЗІЦЬ** *гл.* сысці.

**СЫХО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які паступова меншае, паніжаецца. *У сыходным парадку. С. націск.* **2.** У матэматыцы: які сходзіцца, супадае. ○ **Сыходная інтанацыя** — з паступовым паніжэннем тону.

**СЫЦЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Станавіцца сытым (у 2 знач.), адкормленым. *Пры доглядзе кабан расце і сыцее.* ‖ *зак.* **рассыце́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е *і* **пасыце́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**СЫЧ**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Начная птушка атрада совападобных. **2.** *перан.* Маўклівы, пануры чалавек. *Сядзіць с. сычом.* ‖ *прым.* **сычы́ны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Сычынае гняздо.*

**СЫЧУ́Г**, -а, *м.* **1.** Адзін з аддзелаў страўніка жвачных жывёл. **2.** Страва з фаршыраванага каровінага страўніка. ‖ *прым.* **сычу́жны**, -ая, -ае.

**СЫ́ШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Агент вышукной паліцыі; шпег. ‖ *ж.* **сы́шчыца**, -ы, *мн.* -ы, -шчыц. ‖ *прым.* **сы́шчыцкі**, -ая, -ае.

**СЭНС**, -у, *м.* **1.** Унутраная сутнасць, лагічнае значэнне чаго-н., якое спасцігаецца розумам. *С. слова* (яго значэнне). *С. рамана.* **2.** Мэта, разумная аснова чаго-н. *С. жыцця. С. работы.* ‖ *прым.* **сэ́нсавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СЭ́ПІЯ**, -і, *мн.* -і, -пій, *ж.* **1.** Галаваногі марскі малюск (каракаціца), у целе якога выпрацоўваецца карычневае фарбавальнае рэчыва. **2.** Натуральная карычневая фарба з гэтага рэчыва, а таксама малюнак, выкананы такой фарбай, і фатаграфія карычневага тону.

**СЭ́ПСІС**, -у, *м.* (спец.). Цяжкае інфекцыйнае захворванне, якое выклікаецца хваробатворнымі мікробамі. ‖ *прым.* **сэпты́чны**, -ая, -ае.

**СЭ́ПТЫМА**, -ы, *ж.* У музыцы: інтэрвал шырынёй у сем ступеней. *Вялікая с. Малая с.*

**СЭР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пачцівы зварот да мужчыны ў Вялікабрытаніі і ЗША. **2.** Адзін з дваранскіх тытулаў, а таксама асоба, якая носіць гэты тытул.

**СЭ́РВІС**, -у, *м.* Абслугоўванне насельніцтва, задавальненне яго бытавых патрэб, а таксама сукупнасць арганізацый, якія займаюцца абслугоўваннем насельніцтва ў сферы быту і стварэннем розных выгод. *Аўтамабільны с.* ‖ *прым.* **сэ́рвісны**, -ая, -ае.

**СЭ́РЦА**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Цэнтральны орган крывяноснай сістэмы, які мае выгляд мускульнага мяшка (у чалавека — у левым баку грудной поласці). *С. б'ецца. Хворае с.* **2.** *перан.* Сімвал душы, перажыванняў, пачуццяў, настрояў. *У яго добрае с. Жыць так, як падказвае с.* **3.** *перан.* Важнейшае месца чаго-н., цэнтр. *Мінск — с. нашай дзяржавы.* **4.** Унутраная

частка ствала дрэва, сцябла ці плода расліны. *На выгляд дрэва магутнае, а с. гнілое. С. морквы.* ◊ **Адкрыць сэрца** — прызнацца ў каханні. **Ад усяго сэрца** — шчыра, чыстасардэчна. **З адкрытым сэрцам** — даверліва, ад душы. **Прымаць блізка да сэрца** *што* (разм.) — аднесціся да чаго-н. з увагай, спачуваннем. **Сэрца кроўю абліваецца** *чыё, у каго* (разм.) — каму-н. вельмі цяжка ад душэўнага болю. ‖ *памянш.* **сэ́рцайка**, -а, *н.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **сардэ́чны**, -ая, -ае.

**СЭ́РЦА**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Засаўка ў замку, якая высоўваецца пры павароце ключа.

**СЭРЦАБІ́ЦЦЕ**, -я, *н.* **1.** Біццё, рытм сэрца. *Спакойнае с.* **2.** Пачашчанае біццё сэрца (ад хвалявання, хваробы і пад.). *У дзіцяці высокая тэмпература і с.*

**СЭРЦАВЕ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Знаўца чалавечай душы. ‖ *ж.* **сэрцаве́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак.

**СЭРЦАЕ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., жарт.). Той, хто лёгка заваёўвае сімпатыю жанчын, умее закахаць у сябе. ‖ *ж.* **сэрцае́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак.

**СЭРЦАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Падобны па форме да сэрца[1] (у 1 знач.).

**СЭ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Парода паляўнічых даўгашэрсных сабак. *Ірландскі с.*

**СЮДЫ́**, *прысл.* У гэта месца, у гэты бок. *Пакладзі с. кнігу!*

**СЮДЫ́-ТУДЫ́**, *прысл.* **1.** У той і другі бок; у розныя бакі. *Чалавек бегае сюды-туды з самага ранку.* **2.** У некаторыя месцы. *Трэба сюды-туды збегаць.* **3.** Нішто сабе, дапушчальна (разм.). *Днём яшчэ сюды-туды, а ў вячэрні змрок адчуваеш сябе як у склепе.*

**СЮЖЭ́Т**, -а, *М* -жэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сукупнасць звязаных між сабой дзеянняў, падзей, характараў і лёсаў герояў, у якіх раскрываецца асноўны змест мастацкага твора. *Заблытаны с.* ‖ *прым.* **сюжэ́тны**, -ая, -ае. *Сюжэтныя лініі аповесці.*

**СЮІ́ТА**, -ы, *ДМ* сюі́це, *мн.* -ы, сюі́т, *ж.* Музычны твор, які складаецца з некалькіх рознахарактарных п'ес, аб'яднаных адзінствам задумы. ‖ *прым.* **сюі́тны**, -ая, -ае. *С. цыкл.*

**СЮРПРЫ́З**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Нечаканасць, нечаканы падарунак. *Вось дык с.!* ‖ *прым.* **сюрпры́зны**, -ая, -ае.

**СЮСЮ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Размаўляючы, замяняць шыпячыя гукі свісцячымі. **2.** *перан.* Падрабляцца пад дзіцячы склад думак, мову і пад. *Нельга с. з дзецьмі.* **3.** *перан.* Празмерна апякаць. *С. з нахабранцамі.* ‖ *наз.* **сюсю́канне**, -я, *н.*

**СЯ́БАР**, -бра, *мн.* сябры́, -бро́ў, *м.* **1.** Той, хто звязаны з кім-н. сяброўствам. *Мой найлепшы с.* **2.** *чаго.* Прыхільнік, абаронца. *Сябры прыроды.* ‖ *прым.* **сябро́ўскі**, -ая, -ае.

**СЯБЕ́**, *ДМ* сабе́, *Т* сабо́й (сабо́ю), *займ. зваротны.* Указвае на адносіны дзеяння да таго, хто яго ўтварае (дзейніка), адпавядаючы па сэнсе асабовым займеннікам любой асобы і ліку. *Расказаць пра с. Паставіць сабе многа задач. Размеркаваць паміж сабою. Думаць пра с.* ◊ **Выйсці з сябе** — раззлавацца. **Замкнуцца ў сабе** — адасобіцца ад іншых. **Не па сабе** *каму* (разм.) — няёмка (пра стан збянтэжанасці, разгубленасці і пад.). **Па сабе** (разм.) — па сваім гусце. **Сам не ў сабе** (разм.) — пра таго, хто страціў душэўны спакой. **У сябе** *хто* (разм.) — у сваім доме, пакоі і пад.

**СЯБЕЛЮ́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Сябелюбівы чалавек, эгаіст.

**СЯБЕЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які любіць толькі сябе, эгаістычны.

**СЯБЕЛЮ́БСТВА**, -а, *н.* і **СЯБЕЛЮ́БНАСЦЬ**, -і, *ж.* Клопаты выключна пра сябе, пра свае інтарэсы; эгаізм.

**СЯ́БРА**, -а, *мн.* сябры́, -о́ў, *м.* Тое, што і *сябар.*

**СЯБРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак., з кім* і *без дап.* Знаходзіцца з кім-н. у сяброўстве. ‖ *зак.* **пасябрава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й.

**СЯБРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* **1.** Асоба жаночага полу, якая сябруе з кім-н. **2.** Пра каханую жанчыну.

**СЯБРО́ЎСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сябар. **2.** Заснаваны на сяброўстве, добразычлівы. *Сяброўская атмасфера. Пагаварыць пасяброўску* (прысл.). **3.** Які ўмее сябраваць. *А ты — хлопец с.*

**СЯБРО́ЎСТВА**, -а, *н.* Адносіны паміж кім-н., якія грунтуюцца на духоўнай блізкасці, агульнасці інтарэсаў, узаемнай прыхільнасці і пад. *Вернае с.*

**СЯБРУ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Сябар, прыяцель, таварыш.

**СЯБРЫ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Кола, асяроддзе сяброў. **2.** Сяброўская бяседа з пачастункам. *С. скончылася позна.*

**СЯВА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Тое, што і *сявенька.*

**СЯВЕ́НЬКА**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек. *ж.* Лубянка для ручной сяўбы.

**СЯВЕ́Ц**, сяўца́, *мн.* сяўцы́, сяўцо́ў, *м.* Сейбіт, чалавек, які сее зярняты на ніве.

**СЯГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Ісці, рухацца (разм.). *С. упэўненым крокам.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Прасціраціа, даходзіць да якой-н. мяжы, узроўню і пад. *Раўніна сягае аж да ракі. Мае думкі далёка сягаюць* (перан.). ‖ *зак.* **сягну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, сегняце́, -ну́ць; -ні́.

**СЯГО́ЛЕТА** *гл.* сёлета.

**СЯГО́ЛЕТНІ** *гл.* сёлетні.

**СЯГО́ННЯ** *гл.* сёння.

**СЯДА́ЛІШЧА**, -а, *н.* Частка чалавечага цела, на якую садзяцца; ягадзіцы. ‖ *прым.* **сяда́лішчны**, -ая, -ае.

**СЯДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Тое, што і *садзіцца.* **2. сяда́й(це).** Ужыв. як прапанова, запрашэнне сесці.

**СЯДЗЕ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Асоба, якая даглядае цяжкахворых (звычайна малодшага медыцынскага персаналу).

**СЯДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* сядзець. **2.** Месца, прадмет, на якім сядзяць, на які садзяцца. *Сядзенні ў аўтобусе зручныя.*

**СЯДЗЕ́ЦЦА**, -дзі́цца; *безас., незак.* У выразе: **не сядзіцца, не сядзелася** *каму* — няма, не было магчымасці, жадання сядзець або заставацца дзе-н. *Не сядзіцца дома.*

**СЯДЗЕ́ЦЬ**, сяджу́, сядзі́ш, сядзі́ць; сядзі́м, седзіце́, сядзя́ць; сядзі́; *незак.* **1.** Займаць такое становішча, пры якім тулава апіраецца на што-н. сваёй ніжняй часткай. *С. на лаўцы. С. вярхом* (на кані). **2.** Знаходзіцца на якім-н. месцы, не рухаючыся (пра птушак, насякомых). *Ластаўкі сядзяць на праводах.* **3.** Знаходзіцца, быць дзе-н., у якім-н. месцы (пра жывых істот і прадметы). *С. цэлы дзень дома. Куры сядзяць запёртыя. Хлеб сядзіць у печы.* **4.** Знаходзіцца ў якім-н. стане або займацца чым-н. *С. без работы. С. за камп'ютарам. С. за чарцяжамі. С. з хворым дзіцем. С. за вязаннем.* **5.** Быць у зняволенні; быць пазбаўленым свабоды. *С. у турме. С. на гаўптвахце.* **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Знаходзіцца, размяшчацца дзе-н. *Шыбы ў вокнах сядзяць няшчыльна. Пад сасной сядзіць баравік.* **7.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Глыбока ўпіўшыся куды-н., аставацца там. *Стрэмка сядзіць у пальцы. Куля сядзела вельмі глыбока ў назе.* **8.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра адзенне: добра аблягаць фігуру. *Сукенка сядзіць прыгожа.* ◊ **Вось дзе сядзіць** *хто-што ў каго* (разм., неадабр.) — пра каго-, што-н., што прычыняе вялікія клопаты, непрыемнасці. **Сядзець у дзеўках** (разм.) — доўга не выходзіць замуж. ‖ *наз.* **сядзе́нне**, -я, *н.* (да 1, 3 і 4 знач.).

**СЯДЗІ́БА**, -ы, *мн.* -ы, -дзі́б, *ж.* **1.** Жылыя і гаспадарчыя пабудовы разам з садам і агародам, што складаюць адну гаспадарку. *Сялянскія сядзібы.* **2.** Зямельны ўчастак, заняты будынкамі ў адрозненне ад зямлі пад палямі, лугамі, лесам. ‖ *прым.* **сядзі́бны**, -ая, -ае.

**СЯДЗЯ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які сядзіць. *Убачыць сядзячага зайца* **2.** Такі, які бывае, калі сядзяць. *Заснуць у сядзячай позе.* **2.** Звязаны са знаходжаннем на адным месцы; маларухомы. *Сядзячая работа.* **3.** Прызначаны для сядзення (разм.). *У аўтобусе 40 сядзячых месц.*

**СЯДЛА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго (што).* Прымацоўваць сядло на спіне жывёлы. *С. коней.* ‖ *зак.* **асядла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны. ‖ *наз.* **сядла́нне**, -я, *н.* і **сядло́ўка**, -і, *ДМ* -ло́ўцы, *ж.*

**СЯДЛО́**, -а́, *мн.* сёдлы і (*з ліч. 2, 3, 4*) сядлы́, сёдлаў, *н.* **1.** Сядзенне для конніка, якое ўмацоўваецца на спіне жывёлы. *Новае с.* **2.** Скураное сядзенне веласіпеда, матацыкла. **3.** Назва розных дэталей для апоры, насадкі чаго-н. *Сядло клапана.* **4.** Паніжэнне між дзвюма вышынямі ў горным хрыбце. *С. Эльбруса.* ◊ **Выбіць з сядла** — вывесці з раўнавагі, пазбавіць спакою. ‖ *памянш.* **сядзе́льца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.*

(да 1 знач.). || *прым.* **седлавы́**, -а́я, -о́е (да 1 і 2 знач.).

**СЯДО́К**, седака́, *мн.* седакі́, седако́ў, *м.* **1.** Коннік, верхавы. **2.** Пасажыр, які едзе ў павозцы, карэце, санях (часам наймаючы вазака). *Браць у дарогу седакоў.*

**СЯДУ́Н**, седуна́, *мн.* седуны́, седуно́ў, *м.* (разм.). Нерухавы чалавек; чалавек, які вядзе маларухомы лад жыцця, пасіўны, бяздзейны; дамасед. *Ён не с., каб дома заставацца.*

**СЯКА́Ч**[1], секача́, *мн.* секачы́, секачо́ў, *м.* (спец.). Востры нож, інструмент, механізм для раздраблення, сячэння чаго-н.

**СЯКА́Ч**[2], секача́, *мн.* секачы́, секачо́ў, *м.* Дарослы самец дзіка, марскога коціка.

**СЯКЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ке́р, *ж.* **1.** Насаджаная на тапарышча металічная прылада для сячэння з лязом з аднаго боку і абухом з другога. *Бацька купіў новую сякеру.* **2.** Прымітыўная выкапнёвая прылада з крэменю. || *памянш.* **сяке́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.*

**СЯКІ́-ТАКІ́**, сяка́я-така́я, сяко́е-тако́е, *займ. неазнач.* (разм.). Нязначны, некаторы. *Трэба навесці сякі-такі парадак. Ёсць сякія-такія заўвагі.*

**СЯК-ТА́К**, *прысл.* **1.** З вялікай цяжкасцю, ледзь-ледзь. *Ён сяк-так пераплыў раку.* **2.** *у знач. вык.* Цярпіма. *Ну як жыццё? — Сяк-так.*

**СЯКУ́ЧАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* У матэматыцы: прамая лінія, якая перасякае крывую ў двух ці болей пунктах. *Правесці сякучую.*

**СЯЛІ́БА**, -ы, *мн.* -ы, -ліб, *ж.* Населены пункт у сельскай мясцовасці (паселішча, сяло і пад.). || *прым.* **сялі́бны**, -ая, -ае.

**СЯЛІ́ЦЦА**, сялю́ся, се́лішся, се́ліцца; *незак.* **1.** Уладжвацца на незаселеных месцах; пасяляцца, займаць пад жыллё хату, участак; пра птушак, жывёл і пад. *С. на адведзеным участку.* **2.** *перан.* Пра пачуцці, настрой і пад.: узнікаць, напаўняць. *Надзеі на лепшае селяцца ў душы.* || *зак.* **пасялі́цца**, -сялю́ся, -се́лішся, -се́ліцца.

**СЯЛІ́ЦЬ**, сялю́, се́ліш, се́ліць; се́лены; *незак., каго-што.* Уладжваць на незаселеных месцах; пасяляць. || *зак.* **пасялі́ць**, -сялю́, -се́ліш, -се́ліць; -се́лены; *наз.* **пасяле́нне**, -я, *н.*

**СЯЛО́**, -а́, *мн.* сёлы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) сялы́, сёл, *н.* **1.** Вялікая вёска, гаспадарчы і адміністрацыйны цэнтр сельскага раёна для навакольных паселішчаў, а таксама любы населены пункт негарадскога тыпу. *Працаўнікі сёл.* **2.** *зб.* Сельская мясцовасць, яе жыхары. *Культурная работа на сяле.* || *прым.* **се́льскі**, -ая, -ае.

**СЯЛЯ́НКА** *гл.* селянін.

**СЯЛЯ́НСКІ** *гл.* селянін.

**СЯЛЯ́НСТВА**, -а, *н.* **1.** *зб.* Сяляне. *Беларускае с.* **2.** Тое, што мае да іх дачыненне (праца, побыт і пад.). *Займацца сялянствам.* || *прым.* **сяля́нскі**, -ая, -ае. *Сялянскае паходжанне.*

**СЯМЕ́ЙНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Стан сямейнага (у 2 знач.); сямейны спосаб жыцця. **2.** Заганны прынцып падбору кадраў, размеркавання працы, калі перавага і прывілеі аддаюцца родзічам і сваякам.

**СЯМЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сям'я. **2.** Які мае сям'ю (у 1 знач.), не адзінокі. *С. чалавек.* **3.** Прызначаны для сям'і. *С. вечар у клубе.*

**СЯМЕ́ЙСТВА**, -а, *н.* **1.** Тое, што і *сям'я* (у 1 знач.). *Прыехалі ўсім сямействам у тэатр.* **2.** У сістэматыцы жывёл і раслін: група з некалькіх родаў, падобных па будове і блізкіх па паходжанні. *С. акунёвых. С. злакавых.*

**СЯМЁРА**, семяры́х, семяры́м, семяры́мі, *ліч. зб.* **1.** З назоўнікамі мужчынскага і агульнага роду, што абазначаюць асоб, з разам узятымі асабовымі назоўнікамі мужчынскага і жаночага роду, з назоўнікамі мн. л., якія абазначаюць жывых істот абодвух полаў, з асаб. займ. мн. л. і без залежнага слова: колькасць сем. *С. хлопцаў. С. сірот. С. пасажыраў: чатыры мужчыны і тры жанчыны. С. свіней. Нас было с. С. аднаго не чакаюць* (прыказка). **2.** З назоўнікамі, якія абазначаюць маладых істот: колькасць сем. *С. гусянят.* **3.** звычайна *Н* і *В.* З множналікавымі назоўнікамі: сем прадметаў. *С. саней. С. штаноў.* **4.** звычайна *Н* і *В.* З некаторымі назоўнікамі, якія абазначаюць прадметы, што існуюць або якія носяць у пары: сем пар. *С. туфель. С. шкарпэтак.*

**СЯМЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Лічба 7. **2.** Назва чаго-н. з сямі адзінак, напр., група з сямі чалавек, карта (для гульні) з сямю ачкамі і пад. **3.** Назва маршрутаў транспартных сродкаў, абазначаных лічбай 7 (трамвай, аўтобус, тралейбус; разм.). *Дзе с. спыняецца? Паеду на сямёрцы.* || *прым.* **сямёрачны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**СЯМІ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які складаецца з сямі якіх-н. адзінак, змяшчае сем адзінак, напр.: *сямізначны, сямідзённы, сямігадзінны;* 2) які адносіцца да сямі, да сёмага, напр. *сямігадзінны* (цягнік).

**СЯМІГАДЗІ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Працягласцю ў 7 гадзін. *С. рабочы дзень.* **2.** Прызначаны на сем гадзін. *С. аўтобус.*

**СЯМІГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сямігоддзе. **2.** Які праіснаваў, пражыў 7 гадоў.

**СЯМІГО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Тэрмін у 7 гадоў. **2.** Гадавіна падзеі, якая была 7 гадоў назад. *С. школы.* || *прым.* **сямігадо́вы**, -ая, -ае.

**СЯМІГО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* (уст.). **1.** Сямігадовы план развіцця народнай гаспадаркі. **2.** Няпоўная сярэдняя школа з сямю гадамі навучання (існавала да 1958 г.).

**СЯМІДЗЕСЯЦІГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* сямідзесяцігоддзе. **2.** Які праіснаваў, пражыў 70 гадоў.

**СЯМІДЗЕСЯЦІГО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Прамежак часу, тэрмін у 70 гадоў. **2.** Гадавіна чаго-н., што адбылося ці пачалося 70 гадоў назад. *С. Перамогі.* || *прым.* **сямідзесяцігадо́вы**, -ая, -ае.

**СЯМІДЗЯСЯ́ТЫ** *гл.* семдзесят.

**СЯМІКЛА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань сёмага класа. || *ж.* **сямікла́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**СЯМІКРА́ТНЫ**, -ая, -ае. Зроблены сем разоў, паўлічаны ў сем разоў. *У сямікратным памеры. С. чэмпіён па гімнастыцы* (які сем разоў заваяваў гэта званне).

**СЯМІМЕ́СЯЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Працягласцю ў сем месяцаў. *Сямімесячная хвароба.* **2.** Узростам у сем месяцаў. *Сямімесячнае дзіця.* **3.** Пра немаўля: які нарадзіўся неданошаным, праз сем месяцаў пасля зачацця. *Выходжванне сямімесячных* (наз.).

**СЯМІМІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Даўжынёй у сем міль. ◊ **Ісці сямімільнымі крокамі** — вельмі хутка.

**СЯМІСО́ТЫ** *гл.* семсот.

**СЯМІТЫСЯЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *Ліч. парадк.* да сем тысяч. *С. нумар.* **2.** Які складаецца з сямі тысяч адзінак. *Сямітысячнае войска.*

**СЯМНА́ЦЦАЦЬ**, -ццаці, *Т* -ццаццю, *ліч.* Лік і колькасць 17. || *парадк.* **сямна́ццаты**, -ая, -ае.

**СЯМ-ТА́М**, *прысл.* У некаторых месцах, месцамі. *За свой век давялося сям-там пабываць. Сям-там з моху вытыркаюцца шапачкі баравікоў.*

**СЯМ'Я́**, -і́, *мн.* се́м'і *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) сям'і́, сяме́й *і* се́м'яў, *ж.* **1.** Група блізкіх сваякоў, якія жывуць разам і звязаны агульнасцю побыту, узаемнай дапамогай, маральнай і прававой адказнасцю. *Вялікая с. Мадэль сям'і.* **2.** *перан., каго* або *якая.* Група людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі. *Студэнцкая с.* **3.** Група жывёл, птушак, якая складаецца з самца, адной або некалькіх самак і дзіцянят, што жывуць разам, а таксама група некаторых жывёлін або раслін аднаго віду. *С. мядзведзяў. С. бяроз.* ○ **Сям'я моў** — у лінгвістыцы: група родных моў. || *памянш.* **саме́йка**, -і, *ДМ* -ме́йцы, *мн.* -і, -ме́ек, *ж.* (да 1 знач.). || *прым.* **саме́йны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**СЯНА́Ж**, сенажу́, *м.* Падвяленая здробненая трава, звычайна прасаваная, якая захоўваецца ў спецыяльных герметычна закрытых сховішчах і выкарыстоўваецца як багаты вітамінамі прэсны корм для жывёлы. *С. з люцэрны.* || *прым.* **сяна́жны**, -ая, -ае.

**СЯННІ́К**, сенніка́, *мн.* сеннікі́, сеннікоў, *м.* Матрац, набіты сенам ці саломай. || *прым.* **сеннíко́вы**, -ая, -ае.

**СЯННЫ́** *гл.* сена.

**СЯРДЗІ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Схільны сердавацца, злавацца; злосны. *Сярдзітая суседка.* **2.** Які выражае раздражненне, злуецца на каго-, што-н. *С. позірк. С. на жонку.* **3.** *перан.* Які моцна дзейнічае (пра алкаголь, табаку, гарчыцу і пад.). *Сярдзітая гарчыца. С. перац.* **4.** *перан.* Вельмі моцны (пра

**ТАПО́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж. і* **ТО́ПАЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Дрэва сямейства вярбовых з высокім і моцным ствалом. ‖ *прым.* **тапо́левы**, -ая, -ае. *Т. пух.*

**ТАПО́НІМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Уласная назва якога-н. геаграфічнага аб'екта (населенага пункта, ракі, возера і пад.). *Тапонімы Міншчыны.*

**ТАПО́Р**, тапара́, *мн.* тапары́, тапаро́ў, *м.* Прылада для сячэння ў выглядзе насаджанай на драўлянае дзяржанне металічнай лопасці з вострым лязом з аднаго боку і абухом з другога; сякера. *З лесу далятаў стук тапара.* ◊ **Хоць тапор (сякеру) вешай** (разм.) — аб цяжкім, нясвежым паветры ў памяшканні. ‖ *памянш.* **тапо́рык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **тапо́рны**, -ая, -ае.

**ТАПО́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* тапор. **2.** *перан.* Грубы, нязграбны, як тапаром зроблены. *Тапорная мэбля.* ‖ *наз.* **тапо́рнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ТАПТА́ЦЦА**, тапчу́ся, то́пчашся, то́пчацца; тапчы́ся; *незак.* **1.** Пераступаць з нагі на нагу на адным месцы. **2.** *перан.* Рабіць што-н., не дасягаючы мэты, без належных вынікаў. ‖ *наз.* **таптáнне**, -я, *н.*

**ТАПТА́ЦЬ**, тапчу́, то́пчаш, то́пча; тапчы́; таптáны; *незак.* **1.** *каго-што.* Прымінаць нагамі, ходзячы па чым-н. *Т. траву.* **2.** *каго.* Наязджаючы канём, збіваць з ног, душыць, калечыць. **3.** *што.* Ступаючы, пэцкаць нагамі (разм.). *Т. падлогу.* **4.** *што.* Збіваць, зношваць абутак. *Т. боты.* **5.** *перан., што.* Пагарджаючы, груба зневажаць, абражаць. *Т. чалавечую годнасць.* ‖ *зак.* **патапта́ць**, -тапчу́, -то́пчаш, -то́пча; -тапчы́; -таптáны (да 1—3 знач.) *і* **стапта́ць**, стапчу́, сто́пчаш, сто́пча; стапчы́; стаптáны (да 4 знач.). ‖ *наз.* **таптáнне**, -я, *н.*

**ТАПТУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Той, хто топчацца без справы, марудна робіць што-н. ‖ *ж.* **тапту́ха**, -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х.

**ТАПТУ́ХА**, -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х, *ж.* **1.** *гл.* таптун. **2.** Адзін з відаў рыбалоўнай сеткі.

**ТАПЧА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Род коннага прывода.

**ТАПЧА́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Шырокая пакаёвая лаўка, звычайна са спінкай, для сядзення або для спання. *Спаць на тапчане.* ‖ *памянш.* **тапчано́к**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.*

**ТАПЫ́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Падымацца ўверх, стаяць тарчма (пра валасы, шэрсць і пад.). **2.** *перан.* Быць незадаволеным чым-н.; упарціцца. ‖ *зак.* **устапы́рыцца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -рыцца (да 1 знач.).

**ТАПЫ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак., што.* Паднімаць, ставіць тарчма, натапырваць (валасы, шэрсць, вушы і пад.). ‖ *зак.* **устапы́рыць**, -ру, -рыш, -рыць; -раны.

**ТА́РА**, -ы, *ж.* Упакоўка, у якой захоўваюцца або перавозяцца тавары, грузы: мяшкі, бочкі, скрынкі і пад. *Шкляная т.* ‖ *прым.* **та́рны**, -ая, -ае. *Т. цэх.*

**ТАРАБА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.* (разм.). **1.** *што.* Несці што-н. цяжкае, вялікае, груваcткае. **2.** Моцна стукаць, грукаць, утвараючы шум. *Т. у дзверы.*

**ТАРАБА́РСКІ**, -ая, -ае. **1.** Тайнапісны, крыптаграфічны. *Тарабарскае пісьмо.* **2.** *перан.* Бяссэнсавы, незразумелы (разм.). *Тарабарская мова.*

**ТАРАБА́РШЧЫНА**, -ы, *ж.* (разм.). Што-н. бяссэнсавае і незразумелае (пра мову, гаворку).

**ТАРАБА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* (разм.). Займацца пустымі размовамі, балбатаць.

**ТАРАКА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Насякомае чорнай або рыжай афарбоўкі з доўгімі вусамі, некаторыя віды якога водзяцца ў жыллі чалавека. ‖ *прым.* **тарака́навы**, -ая, -ае.

**ТАРА́Н**[1], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Прамысловая рыба сямейства карпавых, разнавіднасць плоткі. *Сушаны т.*

**ТАРА́Н**[2], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Старажытная прылада ў выглядзе бервяна з металічным наканечнікам, прымацаваным ланцугамі да перасовачнай вежы, якой разбівалі крапасныя сцены. **2.** Выступ у насавой падводнай частцы баявога судна для нанясення ўдару па корпусе варожага судна (спец.). **3.** Прамы ўдар, які робіць прабоіну. **4.** Нанясенне ўдару носам карабля, вінтом самалёта, пярэдняй часткай танка па варожай машыне ў час бою. **5.** Прарыў фронту і глыбокае ўкліньванне ў размяшчэнне войск праціўніка, а таксама ўдарная група, якая выконвае гэты прарыў. ○ **Гідраўлічны таран** — тэхнічнае збудаванне для пад'ёму вады. ‖ *прым.* **тара́нны**, -ая, -ае.

**ТАРА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., што.* **1.** Біць таранам[2] (у 1 знач.). **2.** Разбіваць або прабіваць чым-н. **3.** Ісці на таран[2] (у 4 знач.). **4.** Прарываць фронт праціўніка прыёмам тарана[2] (у 5 знач.). ‖ *зак.* **пратара́ніць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены (у 2 і 3 знач.).

**ТАРАНТА́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Конная, звычайна крытая павозка на чатырох колах. ‖ *прым.* **таранта́сны**, -ая, -ае.

**ТАРА́НТУЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікі ядавіты павук сямейства павукоў-ваўкоў.

**ТАРАНТЭ́ЛА**, -ы, *ж.* Італьянскі народны танец у хуткім тэмпе, а таксама музыка ў рытме гэтага танца.

**ТАРАРА́М**, -у, *м.* (разм.). Шум, грукат; сварка. *Падняць т.*

**ТАРАРА́Х**, *выкл.* (разм.). **1.** Ужыв. для абазначэння моцнага раскацістага гуку. **2.** *у знач. вык.* Тое, што і *трахнуць. Т. кулаком па стале.*

**ТАРАРА́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** Загрукацець, загрымець. **2.** *каго і без дап.* Моцна ўдарыць; выстраліць. *Т. па спіне. Т. з ружжа.* ‖ *незак.* **тарара́хаць**, -аю, -аеш, -ае.

**ТАРАСІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ро́сіцца; *незак.* Груваcціцца таросамі (пра лёд).

**ТАРАСІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ро́сіць; *незак., што.* Нагрувашчваць таросы. ‖ *наз.* **тарашэ́нне**, -я, *н.*

**ТАРАТА́ЙКА**, -і, *ДМ* -а́йцы, *мн.* -і, -та́ек, *ж.* (разм.). Лёгкая павозка на двух колах.

**ТАРАТО́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* (разм.). Гаварыць вельмі хутка, скорагаворкай.

**ТАРАХЦЕ́ЦЬ**, -хчу́, -хці́ш, -хці́ць; -хці́м, -хціце́, -хця́ць; -хці́; *незак.* (разм.). **1.** Утвараць рэзкія раскацістыя гукі. *Матор тарахціць.* **2.** *перан.* Хутка, гучна, несупынна гаварыць; балбатаць. ‖ *наз.* **тарахце́нне**, -я, *н.*

**ТАРА́ШЧЫЦЬ**, -шчу, -шчыш, -шчыць; *незак., што* (разм.). Шырока раскрываць (вочы). ‖ *зак.* **вы́тарашчыць**, -шчу, -шчыш, -шчыць; -шчаны.

**ТАРБАГА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грызун атрада суркоў, які водзіцца ў Забайкаллі, на Алтаі, у Манголіі і Паўночным Кітаі. ‖ *прым.* **тарбага́навы**, -ая, -ае.

**ТАРБА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Струнны шчыпковы музычны інструмент, блізкі да бандуры.

**ТАРБАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на тарбане.

**ТАРБАНО́ША**, -ы, *мн.* -ы, -но́ш, *ж.* Тое, што і *апосум.*

**ТАРБАСЫ́**, -о́ў, *адз.* то́рбас, -а, *м.* Мяккія боты з аленевых шкур шэрсцю наверх.

**ТАРБАХВА́Т**, -а, *М* -ва́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто хапае і прысвойвае сабе што-н.; сквапны чалавек, хабарнік.

**ТАРГАВА́ЦЦА**, -гу́юся, -гу́ешся, -гу́ецца; -гу́йся; *незак.* **1.** *з кім.* Дагаворвацца аб цане, дабіваючыся ўступак пры заключэнні гандлёвых або іншых здзелак. **2.** *перан.* Спрачацца, не згаджаючыся з чым-н., імкнучыся дабіцца чаго-н., атрымаць што-н. *Т., каму прынесці вады.* ‖ *зак.* **старгава́цца**, -гу́юся, -гу́ешся, -гу́ецца; -гу́йся (да 1 знач.). ‖ *наз.* **торг**, -у, *м.*

**ТАРГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; *незак.* **1.** *каго-што.* Збіраючыся купіць што-н., прыцэньвацца, дамаўляцца аб цане. *Т. бульбу.* **2.** Тое, што і *гандляваць* (разм.). **3.** *перан., кім-чым.* Рабіць прадметам гандлю (пра людзей, іх пачуцці і пад.). *Т. сумленнем.* ‖ *зак.* **старгава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны (да 1 знач.), **патаргава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны (да 1 знач.; разм.) *і* **прытаргава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны (да 1 знач.; разм.). ‖ *наз.* **торг**, -у, *м.* (да 1 і 2 знач.; разм.).

**ТАРГАНУ́ЦЦА** *гл.* торгацца.

**ТАРГАНУ́ЦЬ** *гл.* торгаць.

**ТА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Прадмет кухоннага ўжытку ў выглядзе пласціны з праколатымі дзіркамі, прызначанымі для раздраблення, расціранне чаго-н. *Драць бульбу на тарцы.* ‖ *прым.* **та́ркавы**, -ая, -ае.

**ТАРКАНУ́ЦЬ** *гл.* торкаць.

**ТАРЛАТА́Н**, -у, *м.* Празрыстая баваўняная тканіна, падобная на кісяю. ‖ *прым.* **тарлата́навы**, -ая, -ае.

**ТАРМАЗІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -мо́зіцца; *незак.* Затрымлівацца ў сваім развіцці, руху. *Справа тармозіцца.* ‖ *зак.* **затармазі́цца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -мо́зіцца.

**ТАРМАЗІ́ЦЬ**, -мажу́, -мо́зіш, -мо́зіць; -мо́жаны; *незак., што.* **1.** таксама *без дап.* Запавольваць або спыняць рух чаго-н. (звычайна пры дапамозе тормаза). *Т. трактар. Машына хутка тармозіць.* **2.** *перан.* Стрымліваць рух чаго-н.; затрымліваць развіццё чаго-н. *Т. работу. Т. будаўніцтва школы.* **3.** *перан.* Аслабляць, спыняць праяўленне чаго-н. (спец.). *Т. рэфлексы.* ‖ *зак.* **затармазі́ць**, -мажу́, -мо́зіш, -мо́зіць; -мо́жаны. ‖ *аднакр.* **тармазну́ць**, -ну́, -нёш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1 і 2 знач.; разм.). ‖ *наз.* **тармажэ́нне**, -я, *н.*

**ТАРМАСІ́ЦЦА**, -машу́ся, -мо́сішся, -мо́сіцца; *незак.* Тузацца, торгацца. ‖ *наз.* **тармашэ́нне**, -я, *н.*

**ТАРМАСІ́ЦЬ**, -машу́, -мо́сіш, -мо́сіць; -мо́шаны; *незак., каго-што.* Тузаць, торгаць. *Т. за рукаў.* ‖ *наз.* **тармашэ́нне**, -я, *н.*

**ТАРО́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Доўга дамаўляцца, спрачацца аб чым-н. *Пакуль мы тарокаліся, цягнік пайшоў.* ‖ *наз.* **таро́канне**, -я, *н.*

**ТАРО́КІ**, -аў. Рамяні каля задняй лукі сядла для прывязвання каго-, чаго-н.

**ТАРО́ПКІ**, -ая, -ае. Схільны спяшацца; хуткі, паспешлівы. *Т. чалавек. Тaропкія крокі.* ‖ *наз.* **таро́пкасць**, -і, *ж.*

**ТАРО́СІСТЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з таросаў; багаты на таросы. *Т. лёд.* ‖ *наз.* **таро́сістасць**, -і, *ж.*

**ТАРО́СЫ**, -аў, *адз.* таро́с, -а, *м.* Нагрувашчанне льдзін, якое ўтвараецца пры сцісканні льдоў у паўночных морах і рэках. ‖ *прым.* **таро́савы**, -ая, -ае. *Таросавыя заторы.*

**ТАРО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак., каго-што.* Прывязваць тарокамі да сядла.

**ТАРПА́**, -ы́, *мн.* то́рпы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) тарпы́, то́рпаў, *ж. і* **ТОРП**, -а, *мн.* тарпы́, тарпо́ў, *м.* Вялікая сціртa снапоў, саломы або сена, складзеная асобым спосабам для захоўвання пад адкрытым небам.

**ТАРПАВА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто ўкладвае торпы. ‖ *ж.* **тарпава́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ТАРПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны; *незак., што.* Складаць у торпы. *Т. жыта.* ‖ *наз.* **тарпава́нне**, -я, *н.*

**ТАРПАКЛА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Укладчык снапоў, саломы ці сена ў торпы; тарпавальшчык.

**ТАРПА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дзікі маларослы конь бурай масці, які вадзіўся ў стэпах Усходняй Еўропы і Азіі.

**ТАРПАТЫ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Тое, што і *тэрпенцін.* ‖ *прым.* **тарпаты́навы**, -ая, -ае.

**ТАРПЕ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -пе́д, *ж.* Падводны снарад, які можа самастойна рухацца і наводзіцца на караблі для іх знішчэння. ‖ *прым.* **тарпе́дны**, -ая, -ае. *Т. катар. Тарпедная атака.*

**ТАРПЕДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Атакаваць, паразіць (паражаць) тарпедаю. *Т. варожыя караблі.* **2.** *перан.* Падарваць (падрываць), парушыць (парушаць) знутры. *Т. перагаворы.* ‖ *наз.* **тарпедава́нне**, -я, *н.*

**ТАРПЕДАНО́СЕЦ**, -но́сца, *мн.* -но́сцы, -но́сцаў, *м.* Баявы самалёт або карабель, узброены тарпедамі.

**ТАРПЕДАНО́СНЫ**, -ая, -ае. Узброены тарпедамі. *Тарпеданосная авіяцыя.*

**ТАРПЕ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ваеннаслужачы тарпеднага катара.

**ТАРПЕДЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ваенны марак, які абслугоўвае тарпедны апарат.

**ТАРТА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Лесапільны завод.

**ТА́РТАР**, -а, *м.* У старажытнагрэчаскай міфалогіі: падземнае царства мёртвых.

**ТАРФА...** (*гл.* **торфа...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «торфа...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *тарфагнойны, тарфакрошка, тарфамаса, тарфапомпа, тарфасос, тарфахімія.*

**ТАРФАВА́ЦЬ**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны; *незак., што.* Угнойваць глебу торфам. ‖ *наз.* **тарфава́нне**, -я, *н.*

**ТАРФАГНО́Й**, -ю, *м.* Сумесь торфу і гною як угнаенне. ‖ *прым.* **тарфагно́йны**, -ая, -ае. *Тарфагнойная сумесь.*

**ТАРФАРЭ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Машына для рэзкі тарфяной масы.

**ТАРФАСО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Машына для здабычы торфу гідраўлічным спосабам.

**ТАРФЯ́НІК**, -а *і* -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** -у. Залежы торфу, тарфяное балота. **2.** -у. Асушанае тарфяное балота. **3.** -а. Спецыяліст па торфе або рабочы торфараспрацовак.

**ТАРФЯНІ́СТЫ**, -ая, -ае. Які змяшчае ў сабе торф, багаты на торф. *Тарфяністае балота.* ‖ *наз.* **тарфяні́стасць**, -і, *ж.*

**ТАРФЯ́НІШЧА**, -а, *мн.* -ы, -нішч *і* -аў, *н.* Асушанае тарфяное балота.

**ТАРФЯНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які змяшчае ў сабе торф. *Тарфяное балота.* **2.** Які звязаны са здабычай і апрацоўкай торфу. *Тарфяныя машыны.*

**ТАРЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *незак., што* (спец.). **1.** Адпілоўваць канцы бярвення, брусоў і пад., апрацоўваць тарцы. **2.** Засцілаць тарцамі (у 2 знач.). ‖ *зак.* **затарцава́ць**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны (да 2 знач.). ‖ *наз.* **тарцо́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж. і* **тарцава́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **тарцо́вачны**, -ая, -ае.

**ТАРЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *незак.* **1.** Узвышацца, уздымацца над паверхняй, вытыркацца ўбок, уперад, уверх і пад. *З-пад снегу тарчалі дошкі.* **2.** *перан.* Знаходзіцца дзе-н., назаляючы сваёй непатрэбнай прысутнасцю (неадабр.). *Увесь дзень т. у суседзяў.*

**ТАРЧМА́**, *прысл.* Старчаком, у вертыкальным становішчы. *Палка стаіць т.*

**ТАРШЭ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лямпа з абажурам на высокай падстаўцы, якая ставіцца на падлогу.

**ТА́РЫ-БА́РЫ**, *нескл.* (разм.). Пустая размова, балбатня. *Т. разводзіць.*

**ТАРЫ́Ф**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Афіцыйна ўстаноўленая сума збораў, аплаты за што-н. *Мытны т. Чыгуначны т.* ‖ *прым.* **тары́фны**, -ая, -ае.

**ТАРЫФІКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак.* і *незак., што.* Правесці (праводзіць) тарыфікацыю. *Т. аклады.*

**ТАРЫФІКА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Вызначэнне тарыфу чаго-н. *Т. заработнай платы.* ‖ *прым.* **тарыфікацы́йны**, -ая, -ае.

**ТАРЫ́ЦЬ** *гл.* пратарыць.

**ТАРЭАДО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік бою быкоў на арэне. ‖ *прым.* **тарэадо́рскі**, -ая, -ае.

**ТАРЭ́Ц**, -рца́, *мн.* -рцы́, -рцо́ў, *м.* **1.** Папярочны разрэз бервяна, бруса; папярочная грань чаго-н. *Т. дошкі.* **2.** Кароткі, звычайна шасцігранны драўляны брусок для машчэння вуліц. **3.** Маставая з такіх брускоў. ‖ *прым.* **тарцо́вы**, -ая, -ае.

**ТАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *незак., што.* Перамешваць (ігральныя карты). ‖ *зак.* **стасава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны. ‖ *наз.* **тасава́нне**, -я, *н. і* **тасо́ўка**, -і, *ДМ* -со́ўцы, *ж.*

**ТАСЁМКА**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак, *ж.* Тое, што і *тасьма.* ‖ *прым.* **тасёмачны**, -ая, -ае *і* **тасёмкавы**, -ая, -ае.

**ТАСЁМЧАТЫ**, -ая, -ае. З тасьмой, тасёмкай. *Тасёмчатыя ўпрыгажэнні.*

**ТАСТАМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Завяшчанне.

**ТАСЬМА́**, -ы́, *ж.* Вузкая тканая або плеценая палоска для абшыўкі, аздаблення, змацоўвання чаго-н. *Каляровая т. Шаўковая т.*

**ТА́ТА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *бацька* (у 1 знач.).

**ТАТАЛІЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Механічны лічыльнік на скачках, які паказвае грашовыя стаўкі на таго ці іншага каня, а таксама бюро, якое прымае стаўкі і аддае выйгрыш. **2.** Гульня на грошы на скачках.

**ТАТАЛІТА́РНЫ**, -ая, -ае. Які характарызуецца поўным панаваннем дзяржавы над усімі бакамі жыцця грамадства, насіллем, знішчэннем дэмакратычных свабод і правоў асобы. *Таталітарная дзяржава. Т. рэжым.* ‖ *наз.* **таталіта́рнасць**, -і, *ж.*

**ТАТАЛІТАРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Таталітарны рэжым.

**ТАТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Усеабдымны, усеагульны. *Татальная мабілізацыя.* ‖ *наз.* **тата́льнасць**, -і, *ж.*

**ТАТА́РЫ**, -аў, *адз.* тата́рын, -а, *м.* **1.** Народ, які складае асноўнае насельніцтва

Рэспубліні Татарстан. **2.** Назва некаторых цюркамоўных народаў, якія насяляюць асобныя вобласці ў Паволжы, Сібіры і іншых месцах. **3.** Назва розных цюркскіх і мангольскіх плямён, якія аб'ядналіся ў 13—15 стст. у адзіную дзяржаву — Залатую Арду. ‖ *ж.* **татáрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **татáрскі**, -ая, -ае.

**ТАТУІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго-што.* Наналоць (наколваць) асобай фарбай узоры ці малюнкі на целе. ‖ *зак.* таксама **вы́татуіраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны. ‖ *звар.* **татуіравацца**, -руюся, -руешся, -руецца; -руйся. ‖ *наз.* **татуіро́ўка**, -і, *ДМ* -óўцы, *ж.* ‖ *прым.* **татуіро́вачны**, -ая, -ае.

**ТАТУІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -óўцы, *ж.* **1.** *гл.* татуіраваць. **2.** *мн.* -і, -рóвак. Вытатуіраваныя, наколатыя на целе ўзоры. *Т. на спіне.*

**ТА́ТЫ**, -аў, *адз.* тат, -а, *М* тáце, *м.* Народнасць іранскай моўнай групы, якая жыве ў прыкаспійскай частцы Азербайджана і на поўдні Дагестана. ‖ *ж.* **тáтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **тáцкі**, -ая, -ае. *Тацкая мова.*

**ТАТЭ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У першабытным грамадстве: жывёла, з'ява прыроды, расліна ці прадмет, якія лічацца родапачынальнікамі племені і служаць аб'ектам рэлігійнага пакланення. ‖ *прым.* **татэ́мны**, -ая, -ае.

**ТАТЭМІ́ЗМ**, -у, *м.* Першабытны культ татэмаў. ‖ *прым.* **татэмісты́чны**, -ая, -ае.

**ТАЎКАТНЯ́**, -í, *ж.* (разм.). Хаатычны рух, цісканіна ў натоўпе; мітусня, сумятня.

**ТАЎКА́Ч**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Кароткая прылада з патоўшчаным круглым канцом, якой таўкуць што-н. *Жанчыны таўклі таўкачамі крупы на куццю.* **2.** *перан.* Пра някемлівага чалавека (разм., зневаж.).

**ТАЎКУ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (разм.). Бойкае месца, базар, дзе прадаюць розныя рэчы з рук.

**ТАЎРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -равáны; *незак., каго-што.* Ставіць, выпальваць таўро. *Т. жывёлу.* ‖ *зак.* **затаўравáць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -равáны.

**ТАЎРО́**, -á, *мн.* таўры́, -óў, *н.* **1.** Кляймо на скуры сельскагаспадарчых жывёл як распазнавальны знак. **2.** Прылада для клеймавання жывёлы. ‖ *прым.* **таўро́вы**, -ая, -ае.

**ТАЎРО́ВЫ**[1], -ая, -ае (спец.). Які мае папярочнае сячэнне ў форме літары «Т». *Т. профіль вырабу.*

**ТАЎРО́ВЫ**[2] *гл.* таўро.

**ТАЎСМА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Трохі тоўсты, таўставаты. *Нос кароткі і т.* **2.** Поўны, прысадзісты, моцна складзены (пра чалавека). ‖ *наз.* **таўсмáтасць**, -і, *ж.*

**ТАЎСТА...** (*гл.* **тоўста...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «тоўста...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *таўстагубы, таўстаскуры, таўстаногі.*

**ТАЎСТАБРУ́ХІ**, -ая, -ае (разм.). З тоўстым, вялікім жыватом.

**ТАЎСТАЗА́ДЫ**, -ая, -ае (разм.). З тоўстым задам (у 2 знач.).

**ТАЎСТАЛО́БІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прамысловая рыба сямейства карпавых, якая водзіцца ў рэках Паўднёва-Усходняй Азіі, а таксама акліматызавана ў Паўднёвай Еўропе.

**ТАЎСТАМО́РДЫ**, -ая, -ае (разм.). З тоўстай мордай. *Т. бульдог.*

**ТАЎСТАНО́ГІ**, -ая, -ае. З тоўстымі нагамі.

**ТАЎСТАНО́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* Перапончатакрылае насякомае бліскучай металічнай афарбоўкі.

**ТАЎСТАРО́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Парнакапытная жывёліна сямейства пустарогіх з вялікімі рагамі, якая водзіцца ў Паўночна-Усходняй Азіі і Паўночнай Амерыцы; снежны баран.

**ТАЎСТАСУ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Багацей. *Развялося цяпер таўстасумаў.*

**ТАЎСТАШЧО́КІ**, -ая, -ае. З тоўстымі, мясістымі шчокамі. *Т. хлапчук.*

**ТАЎСТУ́Н**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* (разм.). Тоўсты чалавек. ‖ *памянш.-ласк.* **таўстунóк**, -нкá, *мн.* -нкí, -нкóў, *м.* ‖ *ж.* **таўсту́ха**, -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х; *памянш.-ласк.* **таўсту́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.*

**ТАЎСТУ́ХА**[1] *гл.* таўстун.

**ТАЎСТУ́ХА**[2], -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х, *ж.* Грыб сямейства павуціннікавых з буравата-жоўтай плямістай шапкай.

**ТАЎСЦЕ́ЦЬ**, -éю, -éеш, -éе; *незак.* Станавіцца тоўстым, больш тоўстым. ‖ *зак.* **патаўсцéць**, -éю, -éеш, -éе.

**ТАЎСЦІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ціць; *незак., каго-што.* Рабіць тоўстым або больш тоўстым, надаваць выгляд тоўстага чалавека. *Ватоўка таўсціла жанчыну.*

**ТАЎТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Паўтарэнне аднаго і таго ж іншымі словамі, якія не ўдакладняюць сэнсу сказанага. ‖ *прым.* **таўталагі́чны**, -ая, -ае.

**ТАЎХАНІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Хаатычны рух, штурханіна, таўкатня. *У раздзявалцы т.*

**ТАЎХА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* (разм.). Таўхаць каго-н. або адзін аднаго. ‖ *зак.* **таўхану́цца**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -ні́ся.

**ТАЎХА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак., каго-што* (разм.). Штурхаць кароткім, рэзкім рухам. *Т. пад локаць.* ‖ *зак.* **таўхану́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **таўхáнне**, -я, *н.*

**ТАЎЧО́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Блін з тоўчанай бульбы. *На снеданне падалі таўчонікі.*

**ТАЎЧЫ́**, таўку́, таўчэ́ш, таўчэ́; таўчо́м, таўчацé, таўку́ць; тоўк, таўклá, -лó; таўчы́; тóўчаны; *незак.* **1.** *што.* Рабіць больш дробным, драбніць. *Т. соль.* **2.** *што.* Размінаць таўкачом, робячы мяккім. *Т. бульбу.* **3.** *што.* Ачышчаць таўкачом у ступе зерне ад шалупіння. *Т. проса ў ступе.* **4.** *што.* Біць, разбіваць шмат чаго-н. (разм.). *Т. талеркі.* **5.** *каго.* Наносіць пабоі, збіваць (разм.). **6.** *што.* Мяць, нішчыць, вытоптваць што-н. *Т. пасевы.* ◊ **Таўчы ваду ў ступе** (разм., неадабр.) — дарма траціць час, займацца непатрэбнай, безвыніковай справай. ‖ *зак.* **стаўчы́**, стаўку́, стаўчэ́ш, стаўчэ́; стаўчо́м, стаўчацé, стаўку́ць; стоўк, стаўклá, -лó; стаўчы́; стóўчаны *і* **растаўчы́**, -таўку́, -таўчэ́ш, -таўчэ́; -таўчо́м, -таўчацé, -таўку́ць; -тóўк, -таўклá, -лó; -таўчы́; -тóўчаны (да 1—5 знач.). ‖ *наз.* **таўчэ́нне**, -я, *н.*

**ТАЎЧЫ́СЯ**, таўку́ся, таўчэ́шся, таўчэ́цца; таўчо́мся, таўчацéся, таўку́цца; тóўкся, таўклáся, -лóся; таўчы́ся; *незак.* **1.** Драбніцца, дзяліцца на больш дробныя часткі. **2.** (*1 і 2 ас. адз. звычайна не ўжыв.*). Быць, знаходзіцца дзе-н., звычайна ў цесным. *Каля парога таўкліся людзі.* **3.** Увіхацца дзе-н., каля чаго-н. (разм.). *Увесь дзень т. на кухні.*

**ТАЎШЧЫНЯ́**, -í, *ж.* **1.** *гл.* тоўсты. **2.** Велічыня папярочнага сячэння прадмета. *Т. бервяна.*

**ТАЎШЧЭ́ЗНЫ**, -ая, -ае (разм.). Вельмі тоўсты. *Т. дуб.*

**ТАЎШЧЭ́РАЗНЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *таўшчэзны.*

**ТАФТА́**, -ы́, *ДМ* -фцé, *ж.* Тонкая глянцавітая шаўковая або баваўняная тканіна палатнянага перапляцення. ‖ *прым.* **тафцяны́**, -áя, -óе.

**ТАХІКАРДЫ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Паскораны рытм сардэчных скарачэнняў, абумоўлены рознымі фізіялагічнымі і паталагічнымі ўплывамі.

**ТАХТА́**, -ы́, *ДМ* -хцé, *мн.* -ы́, тахт, *ж.* Шырокая канапа без спінкі. *Спаць на тахце.*

**ТАЧА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Рысорная павозка з адкрытым кузавам для запрэжкі пары коней.

**ТА́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Ручная каляска, якую возяць, трымаючы за ручкі і штурхаючы перад сабой. *Вазіць цэглу на тачцы.* ‖ *прым.* **тáчачны**, -ая, -ае.

**ТАЧЫ́ЛА**, -а, *М* -е, *мн.* -ы, -чыл *і* -аў, *н.* Тачыльны камень, а таксама станок для навострывання рэжучых інструментаў.

**ТАЧЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Інструмент для вастрэння нажоў, брытваў і пад. **2.** Прыстасаванне для завострывання алоўкаў (разм.).

**ТАЧЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для навострывання рэжучых інструментаў. *Т. камень. Т. рэмень.*

**ТАЧЫЛЬНЯ́**, -і, *мн.* -і, -я́ў, *ж.* Тачыльная майстэрня.

**ТАЧЫ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца навострываннем рэжучых інструментаў. ‖ *ж.* **тачы́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ТАЧЫ́ЦЬ**[1], тачу́, тóчыш, тóчыць; тóчаны; *незак., што.* **1.** Рабіць вострым рэжучую частку, лязо чаго-н. з дапамогай та-

чыла, бруска і пад.; вастрыць. *Т. нож.* **2.** Рабіць прыдатным для карыстання (пра аловак). **3.** Выраблядь што-н., апрацоўваючы на такарным станку. *Т. дэталі.* ‖ *зак.* **натачыць**, -тачу, -тóчыш, -тóчыць; -тóчаны (да 1 і 2 знач.) *і* **выточыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны (да 3 знач.). ‖ *наз.* **тачэ́нне**, -я, *н.*

**ТАЧЫ́ЦЬ**[2], 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., тóчыць; *незак.* **1.** *што.* Грызучы, праядаючы, рабіць дзіркі ў чым-н., пашкоджваць што-н. (пра насякомых, грызуноў). *Шашаль точыць хату.* **2.** *перан., каго-што.* Неадступна мучыць, паступова пазбаўляючы сіл (пра хваробу, думкі, пачуцці і пад.). ‖ *зак.* **паточыць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -тóчыць; -тóчаны (да 1 знач.).

**ТАЯМНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** Тое, што яшчэ не пазнана, не стала вядомым. *Таямніцы мінулага. Т. атама.* **2.** Тое, што трымаецца ў сакрэце, наўмысна хаваецца ад іншых. *Не раскрываць таямніцы. Умець захаваць таямніцу.*

**ТАЯМНІ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Поўны таямніцы (у 1 знач.), загадкава-незразумелы. *Т. шорах.* **2.** Які з'яўляецца тайнай і наўмысна хаваецца. *Прыехаў з таямнічай мэтай.* **3.** Шматзначны, загадкавы. *З таямнічым выразам твару.* ‖ *наз.* **таямнічасць**, -і, *ж.*

**ТВА́НІСТЫ**, -ая, -ае. Багністы, гразкі, у якім лёгка загразнуць, увязнуць. *Твані́стая мясцовасць.* ‖ *наз.* **тва́ністасць**, -і, *ж.*

**ТВАНЬ**, -і, *ж.* Дрыгва, багністае месца.

**ТВАР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пярэдняя частка галавы чалавека. *Загарэлы т. Прыгожы т.* **2.** *перан.* Індывідуальнае аблічча, выгляд, характэрныя рысы каго-, чаго-н. *Мяняецца т. гарадоў.* ◊ **Да твару** (разм.) — 1) ідзе, падыходзіць каму што-н.; 2) адпавядае чыйму-н. становішчу. У **твар** (ведаць, знаць каго-н.) — па знешнім выглядзе. ‖ *памянш.-ласк.* **тва́рык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 знач.).

**ТВАРО́Г**, -рагу, *м.* Прадукт харчавання, які атрымліваецца з кіслага малака пры аддзяленні ад яго сыроваткі пасля адтоплівання. *Запраўдзіць т. смятанай.* ‖ *прым.* **тваро́жны**, -ая, -ае. *Т. сыр.*

**ТВАРО́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Печаная аладка з тварагу; сырнік.

**ТВАРО́ЖЫСТЫ**, -ая, -ае. Падобны з выгляду на тварог. *Тварожыстая маса.*

**ТВАРО́ЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ыцца; *незак.* Ператварацца ў тварог (пра малако).

**ТВАРО́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *незак., што.* Квасіць малако для атрымання тварагу.

**ТВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., твóрыцца; *незак.* Рабіцца, адбывацца. *На вуліцы тварылася нешта незразумелае.*

**ТВАРЫ́ЦЬ**, твару́, твóрыш, твóрыць; твóраны; *незак., што.* **1.** таксама *без дап.* Ствараць у працэсе творчай дзейнасці. **2.** Рабіць, здзяйсняць. *Т. дабро. Т. гісторыю.* ‖ *наз.* **тварэ́нне**, -я, *н.*

**ТВАРЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* тварыць. **2.** *мн.* -і, -яў. Тое, што створана ў працэсе творчай дзейнасці; твор. *Т. мастака.*

**ТВАРЭ́Ц**, -рца́, *мн.* -рцы́, -рцóў, *м.* **1.** Той, хто стварае матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці. *Т. гісторыі — народ.* **2.** (з вялікай літары). У рэлігіі: Бог як стваральнік свету.

**ТВІСТ**, -а, *М* -сце, *м.* Амерыканскі парны танец імправізацыйнага характару.

**ТВОЙ**, твайгó, *м.*, твая́, тваёй, *ж.*, тваё, твайгó, *н.*, *мн.* тваé, тваі́х; *займ. прынал.* **1.** Які мае адносіны да цябе, належыць табе. *Т. дом. Твая кніга. Тваё паліто.* **2.** *у знач. наз.* **твой**, твайгó, *м.*, **твая́**, тваёй, *ж.* Муж, каханы або жонка, каханая. — *Ці т. дома? — Не, кудысьці пайшоў.*

**ТВОР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прадукт творчай працы (раман, карціна, архітэктурнае збудаванне і пад.).

**ТВО́РНЫ**. У выразе: **творны склон** — склон, які адказвае на пытанні кім? чым?

**ТВО́РЦА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *тварэц.*

**ТВО́РЧАСЦЬ**, -і, *ж.* Дзейнасць чалавека, накіраваная на стварэнне якасна новых культурных, духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей. *Т. Купалы. Народная т.* ‖ *прым.* **тво́рчы**, -ая, -ае. *Творчая праца.*

**ТКАНІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -нін, *ж.* **1.** Выраб, атрыманы ў працэсе ткання на ткацкім станку; матэрыя, матэрыял. *Ільняныя тканіны.* **2.** *перан.* Аснова, змест чаго-н. *Т. сюжэта.* ‖ *прым.* **тканíнны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **тканíнавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ТКА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Група аднародных, звязаных паміж сабой клетак, якія выконваюць адну і тую ж функцыю ў арганізме. *Тлушчавая т. Мышачная т.* **2.** Тое, што і *тканіна* (у 2 знач.). ‖ *прым.* **тка́нкавы**, -ая, -ае.

**ТКАННЁ**, -я, *н. зб.* Тканыя вырабы (разм.).

**ТКА́НЫ**, -ая, -ае. Выраблены тканнем. *Тканая пасцілка.*

**ТКА́ЦТВА**, -а, *н.* **1.** Выраб тканіны з пражы на ткацкім станку. **2.** Майстэрства, тэхніка вырабу тканін. ‖ *прым.* **тка́цкі**, -ая, -ае. *Т. цэх. Ткацкая фабрыка.*

**ТКАЦЬ**, тку, тчэш, тчэ; тчом, тчацé, ткуць; ткаў, ткáла; тчы; ткáны; *незак., што і без дап.* **1.** Выраблядь тканіну шляхам перакрыжаванага перапляцення ніцей асновы і ўтку. **2.** Плесці, віць. *Павук тчэ павуціну.* ‖ *зак.* **сатка́ць**, -ткý, -тчэ́ш, -тчэ́; -тчóм, -тчацé, -ткýць; -ткáў, -ткáла; -тчы́; -ткáны. ‖ *наз.* **тка́нне**, -я, *н.*

**ТКАЧ**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Майстар, рабочы, які выраблае тканіну на ткацкім станку. ‖ *ж.* **ткачы́ха**, -і, *ДМ* -чы́се, *мн.* -і, -чы́х.

**ТКНУ́ЦЦА** *гл.* тыкацца[1].

**ТКНУЦЬ** *гл.* тыкаць[1].

**ТЛЕН**, -у, *м.* (уст.). **1.** Тленне, гніенне, распад. **2.** Тое, што разбураецца ці разбурылася. **3.** *перан.* Тое, што недаўгавечна, не мае сапраўднай каштоўнасці.

**ТЛЕ́ННЫ**, -ая, -ае (уст.). Які разбураецца; часовы, не вечны. ‖ *наз.* **тле́ннасць**, -і, *ж.*

**ТЛЕ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -éецца; *незак.* Тое, што і *тлець* (у 2 і 3 знач.).

**ТЛЕЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., тлéе; *незак.* **1.** Гніючы, разбурацца; трухлець, парахнець. *Тлее апалае лісце.* **2.** Гарэць без полымя; слаба падтрымліваць гарэнне. *Асіна не гарыць, а тлее.* **3.** *перан.* Існаваць скрыта, слаба праяўляцца дзе-н. (пра жыццё, пачуцці і пад.). *У душы тлела надзея.* ‖ *наз.* **тле́нне**, -я, *н.*

**ТЛО**, -а, *н.* (разм.). Тое, што сатлела, спарахнела, згніло; тлен, прах, попел.

**ТЛУМ**, -у, *м.* (разм.). **1.** Адурэнне, замарачэнне. *Нейкі т. у галаве.* **2.** Шум, гоман, сумятня. *У пакоі стаяў т., усе нешта крычалі.*

**ТЛУМА́Ч**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* (уст.). Перакладчык (звычайна для вуснага перакладу ў час размовы, перагавораў).

**ТЛУМАЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца тлумачэннем, трактоўкай чаго-н. *Т. сноў.*

**ТЛУМАЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які заключае ў сабе тлумачэнне, трактоўку чаго-н. *Т. слоўнік беларускай мовы.*

**ТЛУМА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *незак.* **1.** *што.* Раскрываць сэнс, сутнасць чаго-н. *Т. пастанову. Т. слова.* **2.** *што каму і без дап.* Асвятляць якое-н. пытанне, даваць зразумець сэнс чаго-н. *Т. рашэнне задачы.* ‖ *наз.* **тлумачэ́нне**, -я, *н.*

**ТЛУМАЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* тлумачыць. **2.** *мн.* -і, -яў. Тое, што асвятляе што-н., раскрывае сэнс чаго-н., дапамагае зразумець прычыну чаго-н. *Знайсці т. сваім паводзінам.*

**ТЛУМІ́ЦЬ**, тлумлю́, тлу́міш, тлу́міць; *незак.* У выразе: **тлуміць галаву** *каму* — марочыць, задурваць, збіваць з толку. ‖ *зак.* **затлумі́ць**, -лумлю́, -лу́міш, -лу́міць; -лу́млены. *Затлуміў мне галаву.*

**ТЛУ́МНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прыводзіць да адурэння, пазбаўляе здольнасці ўспрымаць, разумець што-н. *Тлумная работа.* **2.** Шумны, гаманлівы, неспакойны. *Т. натоўп.* ‖ *наз.* **тлу́мнасць**, -і, *ж.*

**ТЛУ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўтрымлівае ў сабе шмат тлушчу. *Тлустая свініна.* **2.** Тоўсты, укормлены, сыты. *Тлустая індычка. Т. карп.* **3.** Які атрымаўся ад тлушчу. *Тлустая пляма.* **4.** *перан.* Насычаны карыснымі рэчывамі. *Т. чарназём.* **5.** Тоўсты, з тоўстымі лініямі (пра лініі, друкарскія знакі, літары і пад.). *Т. шрыфт.* ‖ *наз.* **тлу́стасць**, -і, *ж.* (у 1, 2 і 4 знач.).

**ТЛУСЦЕ́ЦЬ**, -éю, -éеш, -ée; *незак.* Станавіцца тлустым, тлусцейшым. ‖ *зак.* **атлусце́ць**, -éю, -éеш, -ée *і* **патлусце́ць**, -éю, -éеш, -ée. ‖ *наз.* **тлусце́нне**, -я, *н. і* **атлусце́нне**, -я, *н.*

**ТЛУ́СЦІЦЬ**, тлу́шчу, тлу́сціш, тлу́сціць; тлу́шчаны; *незак., што.* **1.** Вымазваць, зашмальцоўваць што-н. тлушчам, чым-н.

тлустым. **2.** Насычаць тлушчамі што-н. у працэсе апрацоўкі (спец.). *Т. скуру.* ‖ *наз.* **тлушчэ́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**ТЛУШЧ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Нераставаральнае ў вадзе масляністае рэчыва, якое ўтрымліваецца ў жывёльных і раслінных тканках. *Растапіць т. Рыбін т.*

**ТЛУ́ШЧАВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які змяшчае ў сабе тлушч. *Тлушчавая тканка.* **2.** Звязаны з апрацоўкай і выкарыстаннем тлушчу. *Тлушчавая прамысловасць.* **3.** Які атрымаўся ад тлушчу; тлусты. *Тлушчавая пляма.*

**ТЛУШЧАЗАМЕ́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Штучны заменнік тлушчаў.

**ТЛУШЧА́К**, -а́, *мн.* -і́, -оў, *м.* Дабраякасная пухліна з тлушчавай тканкі.

**ТЛЯ**, -і, *ж.* **1.** Дробнае насякомае-шкоднік атрада паўцвердакрылых, якое жывіцца сокам раслін. *Капусная т.* **2.** *перан.* Пра нікчэмнага чалавека (разм.). *Які ён талент, т. нікчэмная!*

**ТНУЦЬ** *гл.* цяць.

**ТО**, *злуч.* **1.** Ужыв. ў пачатку галоўнага сказа, каб падкрэсліць яго сувязь з папярэднім даданым умоўным сказам. *Калі не будзе дажджу, то пойдзем па грыбы.* **2.** *пералічальна-размеркавальны.* Ужыв. для сувязі членаў сказа і сказаў пры пералічэнні падзей, з'яў, прадметаў з пераменным чаргаваннем. *То тут, то там чуліся галасы. Шум то сціхаў, то ўзмацняўся.* **3.** *параўнальна-размеркавальны* (з адмоўем або з часціцай «ці»). Ужыв. для выражэння няпэўнасці, сумнення або меркавання, развагі (разм.). *Не то лодка, не то човен.*

**-ТО**, *часц.* Ужыв. ў сказах пры вылучэнні, падкрэсліванні слова, да якога адносіцца. *Наступіў красавік, а надвор'е-то халоднае.*

**ТО́ГА**, -і, *ДМ* то́зе, *мн.* -і, тог, *ж.* У старажытных рымлян: верхняе мужчынскае адзенне, род мантыі, звычайна з белай шэрсці. ◊ **Убірацца ў тогу** *каго-чаго* (кніжн.) — спрабаваць выдаць сябе за каго-н. або завяваць сабе якую-н. рэпутацыю, не маючы на гэта дастатковых падстаў.

**ТО́ЕСНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Поўнае падабенства, супадзенне. *Т. поглядаў.* **2.** У матэматыцы: роўнасць, справядлівая пры любых лікавых значэннях пераменных, што ў яе ўваходзяць. ‖ *прым.* **то́есны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Тоесныя з'явы.*

**ТОЙ**, таго́, *м.*, та́я, той, *ж.*, то́е, таго́, *н.*, *мн.* ты́я, тых; *займ. указ.* **1.** Паказвае на асобу ці прадмет, аддаленыя ў прасторы ці часе. *Той лес. На тым тыдні.* **2.** Паказвае на прадмет ці асобу, што вылучаюцца з ліку іншых. *Вазьмі тую кніжку, якую яшчэ не чытаў.* **3.** Паказвае на які-н. прадмет, асобу, пра якія гаварылася раней. *Прыйшла тая жанчына, якую мы чакалі.* **4.** Паказвае на вядомую ўжо асобу ці прадмет. *Добры скрыпач быў той Мікола.* **5.** Іменна ён, не іншы, гэты ж самы (звычайна ў спалучэннях «той жа», «той самы», «той жа самы»). *Ехалі ў тым жа вагоне.* **6.** *у знач. наз.* **то́е**, таго́, *н.* Паказвае на якія-н. акалічнасці, падзеі, дзеянні і пад., пра якія ўжо ішла размова. *Яны выканалі і маю норму, а я таму і рады.* **7.** Ужыв. як суадноснае слова ў галоўнай частцы складаназалежных сказаў з даданымі дапаўняльнымі. *Думы, мары мае! Ганаруся я той, што навек заўладала сэрцам маім.* **8.** Уваходзіць у склад: а) складаных злучнікаў «дзякуючы таму што», «з прычыны таго што», «для таго што», «да тых пор пакуль», «за тое што» «у той час як», «нягледзячы на тое што», «пасля таго калі», «перад тым як», «тым больш што» і інш.; б) словазлучэнняў, звычайна пабочнага характару, якія звязваюць розныя часткі выказвання: «апрача таго», «акрамя таго», «разам з тым», «між тым» і інш.

**ТОК**[1], -у, *мн.* то́кі, -аў, *м.* **1.** Рух электрычнага зараду ў праваднiку; электрычная энергія. *Токі высокай частаты.* **2.** звычайна *мн.* Пра нервовую энергію чалавека, якая ўспрымаецца іншымі людзьмі; нервовае напружанне, узбуджэнне.

**ТОК**[2], -а, *мн.* такі́, -оў, *м.* **1.** Спецыяльны будынак для складання, абмалоту і ачысткі збожжа; гумно. *Т. будавалі далёка ад хаты.* **2.** Пляцоўка для абмалоту збожжа. *Збожжа на таку малацілі цапамі.*

**ТОК**[3], -у, *м.* Такаванне, падзыванне самкі ў некаторых птушак. *Цецеруковы т.*

**ТОКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да току[1] (у 1 знач.), напр.: *токаабмежавальны, токаадвод, токаздымальнік, токаздымальны, токаразмеркавальнік.*

**ТОКАПРЫЁМНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). **1.** Прылада, пры дапамозе якой ток ад праводу або рэйкі перадаецца рухавіку электравоза, тралейбуса, пад'ёмнага крана і пад. *Т. электравоза.* **2.** Назва розных прыбораў, у якіх адбываецца ператварэнне электрычнай энергіі.

**ТО́КАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочы-спецыяліст па механічнай апрацоўцы цвёрдых матэрыялаў шляхам абточвання. *Т. па метале.*

**ТОЛ**, -у, *м.* Выбуховае рэчыва, якое выкарыстоўваецца ў ваеннай справе і тэхніцы. ‖ *прым.* **то́лавы**, -ая, -ае. *Толавая шашка.*

**ТОЛК**, -у, *м.* **1.** Сэнс, сутнасць, разумнае меркаванне аб чым-н. *Дайсці да толку.* **2.** Карысць, добры вынік. *З гэтага будзе т.* ◊ **Без толку** — без карысці, упустую, дарма. **Да толку** — дарэчы, да месца. **З толкам** — з розумам, разумна.

**ТО́ЛКАМ**, *прысл.* (разм.). **1.** Так, каб было зразумела. *Т. растлумачыць, у чым справа.* **2.** Добра, як належыць.

**ТОЛЬ**, -ю, *М* -і, *м.* Насычаны воданепранікальным складам тоўсты кардон, які выкарыстоўваецца як дахавы і ізаляцыйны матэрыял. ‖ *прым.* **то́левы**, -ая, -ае.

**ТО́ЛЬКІ**. **1.** *часц. вылучальна-абмежавальная.* Не больш як, усяго. *Заплаціў т. тры рублі. Дзяўчынцы т. два тыдні.* **2.** *часц. абмежавальная.* Не раней чым. *Я прыеду т. заўтра.* **3.** *часц. абмежавальная.* Выключна, адзіна; нічога, акрамя гэтага. *Ён будзе т. настаўнікам. На ўроку мы т. чыталі.* **4.** *часц. ўзмацн.* (пры займенніку і прыслоўі звычайна ў адмоўных сказах). Узмацняе ўяўленне аб вялікай колькасці, аб'ёме і пад. чаго-н. *Чаго ён т. не расказваў. Чаго т. не прыдумаюць людзі.* **5.** *прысл.* Зусім нядаўна (аб завяршэнні якога-н. дзеяння, наступленні якога-н. стану і пад.). *Дзеці т. павячэралі і спаць яшчэ не клаліся. Я т. што прыехаў.* **6.** *злуч. супраціўны.* Злучае члены сказа і сказы з супраціўна-абмежавальнымі адносінамі. *Ноч была ціхая, т. сумна шумеў лес.* **7.** *злуч. супраціўны.* Злучае сказы з адносінамі неадпаведнасці. *Ён доўга гаварыў, т. я не паверыў яму.* **8.** *злуч. далучальны.* Ужыв. для сувязі членаў сказа і сказаў, якія ўдакладняюць або дапаўняюць выказаную думку. *Ён ніколі не расказваў пра сваё жыццё, хіба т. дзецям.* **9.** *злуч. часавы.* Ужыв. ў даданых сказах часу, калі падзеі, аб якіх гаворыцца ў галоўным сказе, пачынаюцца адразу ж пасля падзей даданага сказа. *Т. мы заснулі, і тут жа раздаўся стук у акно.* **10.** *злуч. умоўны.* Падпарадкоўвае даданыя сказы са знач. рэальнай умовы. *Школу ты закончыш паспяхова, т. старайся.* ◊ **Толькі і** — выражае ўзмоцненае адценне абмежавання. *Усе толькі і гавораць пра каханне.*

**ТОМ**, -а, *мн.* тамы́, -оў, *м.* Асобная кніжка якога-н. выдання збору твораў. *Слоўнік у чатырох тамах.* ‖ *памянш.* **то́мік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* *Т. вершаў Максіма Багдановіча.*

**ТОН**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Гук пэўнай вышыні, які ўтвараецца перыядычнымі ваганнямі паветра; музычны гук у адрозненне ад шуму. *Узяць высокі т.* **2.** *мн.* Гукі сэрца, якое працуе, а таксама гукі, якія ўтвараюцца пры выстукванні ўнутраных органаў цела чалавека. *Чыстыя тоны сэрца.* **3.** Вышыня або сіла гучання голасу чалавека, які гаворыць. *Знізіць т.* **4.** Характар гучання маўлення, манера гаварэння. *Жартаўлівы т. Рэзкі т.* **5.** Характар, стыль паводзін, жыцця. *Правілы добрага тону.* **6.** Колер, афарбоўка, а таксама адценне колеру, якое адрозніваецца ступенню яркасці. *Тканіна, афарбаваная ў спакойны т. Цёплы т. Светлы т.* ◊ **У тон (пад тон)** — 1) пра гармонію колераў, адценняў колеру; 2) у тым жа духу, стылі; 3) з тым жа настроем, з той жа інтанацыяй (гаварыць і пад.).

**ТО́НА**, -ы, *мн.* -ы, тон, *ж.* Адзінка вымярэння масы ў міжнароднай сістэме адзінак, роўная 1000 кілаграмаў. ○ **Рэгістравая тона** — умоўная адзінка вымярэння ўнутранага аб'ёму транспартных марскіх суднаў, роўная 2,83 $м^3$.

**ТО́НА-КІЛАМЕ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Адзінка вымярэння грузаабароту, якая вылічаецца перавозкай 1 тоны грузу на 1 кіламетр.

**ТО́НІК**, -у, *м.* **1.** Горка-кіслы газіраваны напой. **2.** Касметычны сродак для ачышчэння скуры.

**ТОНКА...** (а таксама **танка...**[1]). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) тонкі (у 1 і 7 знач.), напр.: *тонкавалакністы, тонкадашчаны, тонкапрадзенне, тонкаслаёвы, тонкасцябловы, тонказаваостраны, тонкапсіхалагічны;* 2) дробны (у 1 знач.), напр.: *тонкаабмалочаны, тонказярністы, тонкакрышталічны, тонкапрасеяны, тонкапясчаны, тонкаразмолаты, тонкараспылены, тонкаструктурны.*

**ТО́НКАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* тонкі. **2.** *мн.* -і, -ей. Самыя дробныя дэталі, асаблівасці чаго-н. *Ведаць т. справы. Не ўдавацца ў тонкасці.*

**ТО́НКІ**, -ая, -ае. **1.** Невялікі ў папярочным сячэнні, у абхваце. *Тонкія ніткі. Тонкія пальцы. Тонкая бярозка.* **2.** Невялікі па шырыні, вузкі. *Тонкая рыска.* **3.** Пра гукі, голас: высокі. *Т. голас.* **4.** Пра твар, рысы твару: не грубы, прыгожа абрысаваны. *Тонкія рысы твару.* **5.** Складаны, выкананы з вялікай увагай, умела, па-мастацку. *Тонкая работа. Тонкая разьба.* **6.** Пра смак, пах і пад.: вытанчаны, не рэзкі. *Т. водар кветак.* **7.** Пра розум, мысленне, гумар і пад.: гібкі, пранікліВы, які схоплівае малапрыметнае. *Т. розум. Тонкая крытыка.* **8.** Чуллівы, які ўспрымае самыя слабыя раздражненні (пра органы пачуццяў і іх дзейнасць). *Т. слых.* ‖ *наз.* **то́нкасць**, -і, *ж.*

**ТОНМА́ЙСТАР**, -тра, *мн.* -тры, -траў, *м.* Работнік радыё, кіно, тэатра, які ведае гукавым афармленнем спектакляў, радыёперадач і пад.

**ТО́НУС**, -у, *м.* **1.** Працяглае ўзбуджэнне нервовых цэнтраў і мышачных тканак, якое не суправаджаецца стомай і абумоўлівае пэўнае функцыянаванне органаў. *Мышачны т. Зніжаны т. сэрца.* **2.** *перан.* Ступень жыццядзейнасці арганізма або асобных тканак. *Жыццёвы т.*

**ТО́НЯ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Участак вадаёма, прызначаны для лоўлі рыбы закідным невадам. **2.** Адзін закід невада, а таксама ўлоў ад аднаго закіду.

**ТО́ПАЛЬ** *гл.* таполя.

**ТО́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* Частка печы або катла, дзе спальваюць паліва. *Т. паравоза.* ‖ *прым.* **то́пачны**, -ая, -ае.

**ТО́ПКІ**[1], -ая, -ае. Балоцісты, гразкі, багністы. *Т. бераг.*

**ТО́ПКІ**[2], -ая, -ае. Які лёгка топіцца пры высокай тэмпературы. *Топкае сала.* ‖ *наз.* **то́пкасць**, -і, *ж.*

**ТО́ПЛЕНЫ**, -ая, -ае. Атрыманы шляхам таплення (*гл.* тапіць[2]). *Топленае масла.*

**ТОР**, -а, *м.* Дарога, след, пакінуты калёсамі. *Няроўны т. Пракласці свой т.* (таксама перан.).

**ТО́РБА**, -ы, *мн.* -ы, торб і -аў, *ж.* Невялікі мяшок звычайна з даматканай тканіны. *Напужаў мех, дык і т. страшна* (прыказка). ‖ *памянш.* **то́рбачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **то́рбачны**, -ая, -ае.

**ТО́РБАС** *гл.* тарбасы.

**ТОРГ**[1], -у, *мн.* таргі́, -о́ў, *м.* **1.** *гл.* таргавацць, таргавацца. **2.** Базар, рынак; месца гандлю (уст.). *Паспееш з козамі на т.* (прымаўка). **3.** звычайна *мн.* Публічны продаж маёмасці, рэчаў, пры якім пакупнікам становіцца той, хто прапануе больш высокую цану; аўкцыён.

**ТОРГ**[2], *выкл., у знач. вык.* (разм.). Ужыв. ў знач. дзеяслова таргаць. *Т. за рукаў. Т. плячом.*

**ТО́РГАЦЦА**, -гаюся, -гаешся, -гаецца; *незак.* Рабіць сутаргавыя рухі. *Т. ўсім целам.* ‖ *аднакр.* **тарганУ́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся.

**ТО́РГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго-што.* Цягнуць, тузаць рэзкімі рухамі, рыўкамі. *Т. вяроўку.* **2.** Дрыжаць, рабіць сутаргавыя рухі. *Шчака торгае.* **3.** *што і без дап.* Балець праз аднолькавыя прамежкі часу, тузаць (звычайна пры ўтварэнні нарываў). *Палец торгае.* **4.** *што.* Рэзкім рухам кранаць, зрушваць з месца. *Паравоз торгае вагоны.* **5.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Прыводзіць у рух паплавок, клявацць, торкаць (пра рыбу). ‖ *аднакр.* **тарганУ́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1, 2, 4 і 5 знач.) *і* **то́ргнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1, 2, 4 і 5 знач.). ‖ *наз.* **то́рганне**, -я, *н.*

**ТОРК**, *выкл., у знач. вык.* (разм.). Ужыв. ў знач. дзеяслова торкнуць. *Т. нагой суседа.*

**ТО́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго і без дап.* Таўхаць кароткімі штуршкамі. *Т. у бок.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Прыводзіць у рух паплавок, клявацць (пра рыбу). **3.** *каго.* Тузаць за лейцы, прымушаючы каня ісці. **4.** *чым.* Поркаць чым-н. вострым. ‖ *аднакр.* **то́ркнуць**, -ну, -неш, -не; -ні *і* **тарканУ́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **то́рканне**, -я, *н.*

**ТО́РМАЗ**, -а *і* -у, *мн.* тармазы́, -о́ў, *м.* **1.** -а. Прыстасаванне для спынення або запавольвання руху машыны, цягніка і пад. *Аўтаматычны т. Заскрыпелі тармазы, і машына спынілася.* **2.** -у, *перан.* Перашкода ў развіцці чаго-н. *Т. у рабоце.* ‖ *прым.* **тармазны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.) *і* **то́рмазны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ТО́РНЫ**, -ая, -ае. Пра дарогу: наезджаны, гладкі, роўны. *Т. шлях. Ісці па торнай дарожцы* (таксама перан.: выбраць звычайны шлях, неарыгінальнае рашэнне).

**ТОРП** *гл.* тарпа.

**ТОРС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тулава чалавека, а таксама скульптура тулава. *Т. спартсмена.*

**ТОРТ**, -а, *М* -рце, *мн.* тарты́, -о́ў, *м.* Кандытарскі выраб са здобнага цеста з крэмам, фруктамі і пад. *Бісквітны т.* ‖ *прым.* **то́ртавы**, -ая, -ае.

**ТОРФ**, -у, *м.* Шчыльная маса, якая ўтварылася з рэштак перагніўшых балотных раслін, выкарыстоўваецца як паліва, угнаенне і для розных тэхнічных мэт. ‖ *прым.* **тарфяны́**, -а́я, -о́е.

**ТОРФА...** (а таксама **тарфа...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. торф, тарфяны, напр.: *торфаагрэгат, торфаздабыванне, торфаізаляцыя, торфакампост, торфамінеральны, торфанарыхтоўка, торфаўборачны, торфаўгнаенне.*

**ТОРФАБРЫКЕ́Т**, -у, *М* -ке́це, *м.* Спрасаваны ў выглядзе плітак, цаглін торф, прызначаны на паліва. ‖ *прым.* **торфабрыке́тны**, -ая, -ае.

**ТОРФАПЕРАГНО́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з сумесі торфу і перагною. *Торфаперагнойныя гаршчочкі.*

**ТОРФАРАСПРАЦО́ЎКІ**, -цо́вак, *адз.* -цо́ўка, -і, *ДМ* -цо́ўцы, *ж.* Месца здабычы торфу. ‖ *прым.* **торфараспрацо́ўчы**, -ая, -ае.

**ТО́РЫЙ**, -ю, *м.* Хімічны радыеактыўны элемент, які выкарыстоўваецца ў ядзернай энергетыцы як сыравіна для атрымання ядзернага паліва. ‖ *прым.* **то́рыевы**, -ая, -ае *і* **то́рысты**, -ая, -ае.

**ТОСТ**[1], -у, *М* то́сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Застольная прапанова выпіць за чыё-н. здароўе, за поспех у чым-н. або ў гонар каго-н.

**ТОСТ**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Падсмажаная ці падсушаная лустачка хлеба. *Тосты з сырам. Тосты з вяндлінай.*

**ТО́СТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Электрычны прыбор для прыгатавання тостаў[2].

**ТО́ЎПІЦЦА**, 1 і 2 ас. адз. не ўжыв., -піцца; *незак.* Збірацца дзе-н. вялікай групай, утвараць натоўп. *Каля рэчкі тоўпіліся людзі.*

**ТОЎСТА...** (а таксама **таўста...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. тоўсты, напр.: *тоўстагаловы, тоўстасцяблова, тоўставалакністы.*

**ТО́ЎСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Вялікі, значны ў аб'ёме, у абхваце, папярочным сячэнні. *Тоўстая бяроза. Тоўстая вяроўка.* **2.** Які мае мажную, паўнацелую фігуру. *Т. чалавек.* **3.** Пра голас, гук: нізкі, густы. ‖ *наз.* **таўшчыня́**, -і́, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ТО́ЎЧАНЫ**, -ая, -ае. Атрыманы ў выніку таўчэння. *Тоўчаная бульба.*

**ТО́ЎШЧА**, -ы, *ж.* Слой якога-н. рэчыва, што мае вялікую таўшчыню. *Т. зямной кары.*

**ТО́ЧАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які натачылі[1], востры. *Точаная брытва.* **2.** Які вытачылі. *Крэсла на точаных ножках.* **3.** *перан.* З правільнымі, прыгожа акрэсленымі лініямі (пра рысы твару, фігуру і пад.). *Т. профіль.*

**ТО́ЧНА**, *прысл.* У выразе: **так точна!** — так, менавіта так.

**ТПРУ**, *выкл.* Выкрык, якім спыняюць каня. ◊ **Ні тпру, ні но** (разм.) — нічога не робіць, нічога не распачынае, ніяк не выяўляе сябе.

**ТРАВА́**, -ы́, *ДМ* -е́, *мн.* тра́вы, траў, *ж.* Расліна з аднагадовымі зялёнымі неадзеравянелымі парасткамі і сцяблом. ◊ **Трава травой** (разм., неадабр.) — пра нясмачную яду. ‖ *памянш.-ласк.* **тра́ўка**, -і, *ДМ* тра́ўцы,

**ТРУКА́ЦТВА**, -а, *н.* (разм.). Празмернае захапленне трукамі, знешнімі эфектамі. ‖ *прым.* **трука́цкі**, -ая, -ае.

**ТРУКА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Чалавек, які выконвае трукі (у 1 знач.). **2.** Чалавек, схільны да трукацтва (разм.). ‖ *ж.* **трука́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **трука́цкі**, -ая, -ае.

**ТРУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Месца паміж палубай і днішчам судна, прызначанае для ўстаноўкі механізмаў, размяшчэння розных грузаў. **2.** Памяшканне пад сцэнай у тэатры. ‖ *прым.* **тру́мавы**, -ая, -ае *і* **тру́мны**, -ая, -ае.

**ТРУМО́**, *нескл., н.* **1.** Высокае стаячае люстра. **2.** Прасценак паміж вокнамі, звычайна ўпрыгожаны арнаментам (спец.).

**ТРУНА́**, -ы́, *мн.* тру́ны *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) труны́, трун, *ж.* Спецыяльная скрынка, у якой хаваюць памерлых. ◊ **Загнаць у труну (у магілу)** *каго* (разм., неадабр.) — давесці да смерці, зжыць са свету. ‖ *прым.* **тру́нны**, -ая, -ае.

**ТРУНА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Майстар, які робіць труны.

**ТРУП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мёртвае цела чалавека або жывёлы. ‖ *прым.* **тру́пны**, -ая, -ае. *Т. яд.*

**ТРУ́ПА**, -ы, *мн.* -ы, труп, *ж.* Калектыў артыстаў тэатра, цырка. *Балетная т.*

**ТРУПЦЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ціць; *незак.* (разм.). Утвараць глухі нячысты гук (пра надтрэснуты посуд). *Гаршчок трупціць.* ‖ *наз.* **трупце́нне**, -я, *н.*

**ТРУПЯ́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* (разм.). Памяшканне для трупаў; морг .

**ТРУС**[1], -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Невялікі хатні грызун сямейства заечых, а таксама яго футра. ‖ *прым.* **трусі́ны**, -ая, -ае. *Трусінае мяса. Т. каўнер.*

**ТРУС**[2], -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Ваганне зямлі, землетрасенне.

**ТРУС**[3], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які лёгка паддаецца пачуццю страху; баязлівец.

**ТРУСАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *трусагадовец.*

**ТРУСАГАДО́ВЕЦ**, -до́ўца, *мн.* -до́ўцы, -до́ўцаў, *м.* Той, хто займаецца трусагадоўляй.

**ТРУСАГАДО́ЎЛЯ**, -і, *ж.* Прамысловае развядзенне трусоў. ‖ *прым.* **трусагадо́ўчы**, -ая, -ае.

**ТРУСАМА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Трусіха, якая дае прыплод.

**ТРУСАФЕ́РМА**, -ы, *мн.* -ы, -фе́рм *і* -аў, *ж.* Трусагадоўчая ферма.

**ТРУ́СІКІ**, -аў (разм.). Тое, што і *трусы.*

**ТРУСІ́ХА**, -і, *ДМ* трусі́се, *мн.* -і, -сі́х, *ж.* Самка труса .

**ТРУ́СІЦЬ**, тру́шу, тру́сіш, тру́сіць; *незак.* (разм.). **1.** Трэсціся, дрыжаць ад страху, хвалявання; баяцца. **2.** *што.* Растрасаць што-н., церушыць. *Т. сена.* **3.** *што.* Сыпаць у невялікай колькасці што-н. сыпкае. *Т. соль у страву.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Па́даць дробнымі кроплямі, церушыць (пра дождж). **5.** Бегчы трушком, подбегам. ‖ *зак.* **стру́сіць**, стру́шу, стру́сіш, стру́сіць; стру́шаны (да 1 знач.).

**ТРУ́СКА**, -і, *ДМ* тру́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Тое, што і *трусіха.*

**ТРУСКА́ЛКІ**, -лак, *адз.* труска́лка, -і, *ДМ* -лцы, *ж.* Тое, што і *клубніцы. У садзе спеюць т.* ‖ *прым.* **труска́лачны**, -ая, -ае. *Трускалачнае варэнне.*

**ТРУСЫ́**, -о́ў. Спартыўныя кароткія штаны, а таксама прадмет мужчынскай ці жаночай бялізны.

**ТРУСЯНЯ́** *і* **ТРУСЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня труса[1].

**ТРУСЯ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Памяшканне для трусоў.

**ТРУСЯ́ЦІНА**, -ы, *ж.* Мяса труса[1]. *На снеданне падалі свежую трусяціну.*

**ТРУ́ФЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Клубнепадобны падземны грыб, які выкарыстоўваецца ў якасці прыправы да страў. **2.** Гатунак шакаладных цукерак, якія сваёй формай падобныя на гэты грыб. ‖ *прым.* **тру́фельны**, -ая, -ае.

**ТРУХ**, -у, *м.* (разм.). **1.** Павольны бег каня. *Конь з галопу перайшоў на т.* **2.** *у знач. прысл.* **тру́хам**. Павольнай рыссю, подбегам.

**ТРУХА́**, -і́, *ДМ* трусе́, *ж.* (разм.). Перацёртае сена, салома і пад.; пацяруха.

**ТРУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Бегчы подбегам, трухам.

**ТРУХЛЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ее; *незак.* Рабіцца трухлявым. *Бярвенне трухлее.* ‖ *наз.* **трухле́нне**, -я, *н.*

**ТРУХЛЯВЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ее; *незак.* Тое, што і *трухлець.*

**ТРУХЛЯ́ВЫ**, -ая, -ае. Якіператварыўся ў парахню ад гнілі і часу, струхлеў. *Т. пень.* ‖ *наз.* **трухля́васць**, -і, *ж.*

**ТРУХЛЯ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Трухлявы кавалак чаго-н. (звычайна дрэва).

**ТРУХЛЯ́ЦІНА**, -ы, *ж.* (разм.). Тое, што струхлела, разбурылася ў працэсе гніення. *Ад балота несла трухляцінай.*

**ТРУ́ЦЕНЬ**, тру́тня, *мн.* тру́тні, тру́тняў, *м.* **1.** Самец у пчалінай сям'і. **2.** *перан.* Той, хто жыве за кошт чужой працы. *Быць трутнем.* ‖ *прым.* **тру́тневы**, -ая, -ае.

**ТРУЦІ́ЦЦА**, тручу́ся, тру́цішся, тру́ціцца; *незак.* (разм.). Прымаць атруту з мэтай самагубства або зазнаваць шкоднае дзеянне атрутнага рэчыва. ‖ *наз.* **труччэ́нне**, -я, *н.*

**ТРУЦІ́ЦЬ**, тручу́, тру́ціш, тру́ціць; тру́чаны; *незак., каго (што).* Знішчаць атрутай. *Т. мышэй.* ‖ *зак.* **вы́труціць**, -ручу, -руціш, -руціць; -ручаны. ‖ *наз.* **труччэ́нне**, -я, *н.*

**ТРУ́ШАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Тое, што і *трасянка* (у 1 знач.).

**ТРУШО́К**, -шку́, *м.* (разм.). **1.** Павольны бег, трух. *Конь перайшоў на т.* **2.** *у знач. прысл.* **трушко́м**. Дробнай рыссю. *Конь бег т.*

**ТРУ́ШЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -чыцца; *незак.* (разм.). Ламацца, крышыцца. *Лёд трушчыцца.*

**ТРУ́ШЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *незак., што* (разм.). **1.** Біць, крышыць на дробныя часткі. *Т. шкло.* **2.** Ламаць, крышыць, разбураць. *Танкі трушчылі ўсё на сваім шляху.* ‖ *зак.* **стру́шчыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны.

**ТРЫ**, трох, тром, трыма́, (аб) трох, *ліч. кольк.* **1.** Лік, лічба і колькасць 3. *На т. дні.* **2.** Тое, што і *тройка* (у 2 знач.). *За сачыненне атрымаў т.* ‖ *парадк.* **трэ́ці**, -яя, -яе (да 1 знач.).

**ТРЫ́А**, *нескл., н.* **1.** Музычны твор для трох выканаўцаў (музыкантаў, спевакоў, танцораў) з самастойнымі партыямі для кожнага. **2.** Ансамбль з трох выканаўцаў. *Т. баяністаў.*

**ТРЫАДЗІ́НСТВА**, -а, *н.* Адзінства трох сутнасцей, з'яў, рыс. ○ **Драматычнае трыадзінства** — адзінства часу, месца і дзеяння, якое ўласціва драматургіі класіцызму.

**ТРЫАДЗІ́НЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з трох частак, трох элементаў, што ўтвараюць адзінства.

**ТРЫБУ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (высок.). Грамадскі дзеяч — выдатны прамоўца і публіцыст. *Народны т.*

**ТРЫБУ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -бун, *ж.* **1.** Узвышэнне для выступлення прамоўцы. *Аратар падняўся на трыбуну.* **2.** *перан.* Месца, сфера, дзе праходзіць грамадская дзейнасць каго-н. *Грамадская т.* **3.** Збудаванне з паступовым узвышэннем радоў, лавак для публікі (на стадыёнах, плошчах і пад.). ‖ *прым.* **трыбу́нны**, -ая, -ае.

**ТРЫБУНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Надзвычайны судовы орган. *Ваенны т.*

**ТРЫБУ́Х**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** Страўнік. **2.** Жывот (іран.). *Напхаць т.* (наесціся). **3.** толькі *мн.* Вантробы (страўнік, кішкі і пад.). ‖ *прым.* **трыбухо́вы**, -ая, -ае (да 3 знач.).

**ТРЫБУХА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). З вялікім трыбухом, жыватом. ‖ *наз.* **трыбуха́тасць**, -і, *ж.*

**ТРЫБУХА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Чалавек з празмерна вялікім жыватом.

**ТРЫБУШЫ́ЦЬ**, -бушу́, -бу́шыш, -бу́шыць; -бу́шаны; *незак.* (разм.). **1.** *каго (што).* Патрашыць, вымаць вантробы з забітай жывёліны. **2.** *перан., што.* Разварочваць, разрываць што-н., даставаць, вымаць усё тое, што знаходзіцца ў чым-н. *Т. чамадан.* **3.** *перан., каго-што.* Рабіць вобыск, трэсці каго-н. (груб.). ‖ *зак.* **вы́трыбушыць**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны (да 1 і 2 знач.).

**ТРЫВА́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Устойлівы, моцны, які з цяжкасцю паддаецца разбурэнню, надзейны. *Трывалая апора. Т. будынак.* **2.** *перан.* Вынослівы, стойкі, цярплівы. *Т. чалавек. Т. характар.* **3.** Які не мяняецца, надзейны, устойлівы. *Т. мір. Трывалая эканамічная аснова.* **4.** Пра яду: сытны, пажыўны (разм.). *Т. абед.* ‖ *наз.* **трыва́ласць**, -і, *ж.*

**ТРЫВА́ННЕ**[1] *гл.* трываць.

**ТРЫВА́ННЕ**[2], -я, *мн.* -і, -яў, *н.* У граматыцы: катэгорыя дзеяслова, якая выражае характар працякання дзеяння ў адносінах да выніку, працягласці, яго мяжы. *Закончанае т. Незакончанае т.* ‖ *прым.* **трыва́льны**, -ая, -ае. *Трывальная пáра.*

**ТРЫВА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *што* і *без дап.* Цярпліва пераносіць боль, непрыемнасць і пад. *Так хацелася спаць, што ён не мог т.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Працягвацца пэўны час. *Усё лета трывала засуха. Трывала маўчанне.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Захоўваць прыдатнасць, выконваць сваё прызначэнне; трымацца, служыць. *Кладачка слабая, але яшчэ доўга будзе т.* ‖ *наз.* **трыва́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ТРЫВІЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены арыгінальнасці, звычайны. *Трывіяльная думка. Т. флірт.* ‖ *наз.* **трывія́льнасць**, -і, *ж.*

**ТРЫВО́ГА**, -і, *ДМ* -вóзе, *ж.* **1.** Неспакой, моцнае душэўнае хваляванне, выклікане страхам, небяспекай і пад. *Т. за лёс дзяцей.* **2.** Шум, перапалох, мітусня. *Усе крычалі, адчувалася моцная т.* **3.** Небяспечнае становішча, а таксама сігнал, які апавяшчае аб ім. *Паветраная т. Пажарная т.*

**ТРЫВО́ЖНЫ**, -ая, -ае. **1.** Поўны трывогі (у 1 знач.), або які выражае трывогу. *Т. сон. Т. голас. Трывожна* (безас. ў знач. вык.) *на душы.* **2.** Які выклікае трывогу (у 1 знач.), неспакой. *Трывожныя звесткі.* **3.** Небяспечны. *Т. час.* **4.** Які паведамляе пра небяспеку. *Т. гудок. Т. сігнал.* ‖ *наз.* **трыво́жнасць**, -і, *ж.*

**ТРЫВО́ЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *незак.* Прыходзіць у стан трывогі, моцнага душэўнага хвалявання, турбавацца. *Т. за родных.* ‖ *зак.* **устрыво́жыцца**, -жуся, -жышся, -жыцца *і* **патрыво́жыцца**, -жуся, -жышся, -жыцца.

**ТРЫВО́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *незак., каго-што.* **1.** Прыводзіць у стан трывогі (у 1 знач.), хвалявання. *Трывожыла становішча на фронце.* **2.** Парушаць спакой каго-, чаго-н., турбаваць. *Не трэба яго т.* **3.** *перан.* Бударажыць мінулае, перажытае. **4.** Раздражняць, раз'ятрываць. *Т. рану.* ‖ *зак.* **устрыво́жыць**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны (да 1 знач.), **стрыво́жыць**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны (да 2 знач.) *і* **патрыво́жыць**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны (да 2—4 знач.).

**ТРЫВУГО́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Даўней: трохвугольная форменная шапка.

**ТРЫГАНАМЕ́ТРЫЯ**, -і, *ж.* Раздзел геаметрыі, які вывучае трыганаметрычныя функцыі: суадносіны паміж старанамі і вугламі прамавугольнага трохвугольніка. ‖ *прым.* **трыганаметры́чны**, -ая, -ае.

**ТРЫГУ́БІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -біц, *ж.* Від рыбалоўнай снасці.

**ТРЫДЗЯВЯ́ТЫ**, -ая, -ае. У выразе: **трыдзявятае царства** — вельмі далёкая краіна, зямля.

**ТРЫ́ДЗЕВЯЦЬ**. У выразе: **за трыдзевяць зямель** (разм.) — у казках: у вельмі далёкай краіне, вельмі далёка.

**ТРЫДЗЯСЯ́ТЫ**, -ая, -ае. У выразе: **трыдзясятае царства** — вельмі далёкая краіна, зямля.

**ТРЫ́ЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Машына для ачысткі і сарціроўкі насення. ‖ *наз.* **тры́ерны**, -ая, -ае.

**ТРЫЁД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Электронная лямпа з трыма электродамі.

**ТРЫ́ЗНА**, -ы, *мн.* -ы, трызн *і* -аў, *ж.* **1.** У старажытных славян: заключная частка пахавальнага абраду, якая суправаджалася ваеннымі гульнямі, спаборніцтвамі, а таксама памінальнай вячэрай. **2.** Пахавальны і памінальны абрад, а таксама памінкі па нябожчыку.

**ТРЫ́ЗНІЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ніцца; *незак.* Здавацца, уяўляцца; вярзціся. *Гэта яму трызніцца.* ‖ *зак.* **прытры́зніцца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -ніцца.

**ТРЫ́ЗНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.* **1.** Гаварыць без памяці, будучы цяжка хворым або ў сне. *Хворы трызніў.* **2.** Гаварыць з упэўненасцю пра тое, чаго няма, не існуе. **3.** У моцным захапленні думаць і гаварыць усё пра адно; марыць аб тым, што не можа здзейсніцца, што даўно прайшло і больш не вернецца. ‖ *наз.* **тры́зненне**, -я, *н.*

**ТРЫЗУ́БЕЦ**, -бца, *мн.* -бцы, -бцаў, *м.* Жазло з трыма зубцамі — атрыбут бога мораў у грэчаскай і рымскай міфалогіі, а таксама прылада ў выглядзе трох вострых зубцоў на дрэўку. *Т. Нептуна.*

**ТРЫЗУ́БЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *трохзубы. Трызубыя восці.*

**ТРЫКАТА́Ж**, -у, *м.* **1.** Тканіна машыннай вязкі. **2.** *зб.* Вырабы з такой тканіны. ‖ *прым.* **трыката́жны**, -ая, -ае. *Трыкатажнае палатно.*

**ТРЫКАТА́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік трыкатажнай прамысловасці. ‖ *ж.* **трыката́жніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ТРЫКО́**, *нескл., н.* **1.** Шарсцяная, паўшарсцяная або баваўняная тканіна ўзорнага пляцення для верхняга адзення. **2.** Трыкатажнае адзенне, якое шчыльна аблягае цела і выкарыстоўваецца як тэатральны або спартыўны касцюм. *Спартыўнае т.* **3.** Жаночыя панталоны з трыкатажу. ‖ *прым.* **трыко́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ТРЫКУ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *трохвугольнік.*

**ТРЫКУ́ТНЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *трохвугольны.*

**ТРЫ́ЛЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кніга ці фільм з займальным дэтэктыўным сюжэтам, які трымае чытача ці гледача ў напружанні, з хуткім і непрадказальным развіццём дзеяння. ‖ *прым.* **тры́лерны**, -ая, -ае.

**ТРЫЛІ́СНІК**, -у, *м.* Назва некаторых раслін з трайчастымі лістамі, а таксама відарыс такіх лісцяў на розных эмблемах. ‖ *прым.* **трылі́снікавы**, -ая, -ае.

**ТРЫЛО́ГІЯ**, -і, *мн.* -і, -гій, *ж.* Тры літаратурныя або музычныя творы аднаго аўтара, аб'яднаныя агульнай ідэяй і пераемнасцю сюжэта.

**ТРЫЛЬЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лік, які мае выгляд адзінкі з дванаццаццю нулямі ў Расіі, ЗША і некаторых іншых краінах або адзінкі з васямнаццаццю нулямі ў Германіі і іншых краінах Еўропы. ‖ *парадк.* **трыльёнды**, -ая, -ае.

**ТРЫМА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто валодае якімі-н. каштоўнымі паперамі. *Т. акцый.* **2.** Прыстасаванне для трымання чаго-н. *Т. для папер.*

**ТРЫМАРА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Судна з трыма злучанымі ў верхняй частцы паралельнымі карпусамі. ‖ *прым.* **трымара́нны**, -ая, -ае.

**ТРЫМА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* **1.** *за каго-што.* Захоўваць якое-н. становішча, ухапіўшыся за каго-, што-н. *Т. рукамі за плот. Т. за руку. Хлопчык трымаўся за бацьку.* **2.** *перан., за што.* Старацца захаваць што-н. для сябе, утрымаць за сабою. *Селянін заўсёды трымаўся за зямлю. Т. за пасаду.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Быць умацаваным на чым-н., утрымлівацца на якой-н. апоры пры дапамозе чаго-н. *Гузік трымаўся на адной нітцы.* **4.** *за што.* Прыклаўшы руку да чаго-н. або ўзяўшыся за што-н., захоўваць яе ў такім становішчы. *Т. за бок. Т. за калена.* **5.** Захоўваць якое-н. становішча. *Ледзь т. на нагах ад стомы. Т. на вадзе.* **6.** Не адступаць, не здавацца, моцна стаяць. *Т. на занятай пазіцыі.* **7.** *перан.* Паводзіць сябе пэўным чынам. *Упэўнена т. Манера т.* **8.** У час руху прытрымлівацца пэўнага напрамку. *Т. правага боку дарогі.* **9.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Утрымлівацца, захоўвацца. *Надвор'е трымалася добрае.*

**ТРЫМА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *незак.* **1.** *каго-што.* Узяўшы ў рукі (у зубы, у рот і пад.), не даваць выпасці, вырвацца. *Т. кніжку ў руках. Т. каня за павадок.* **2.** *перан., каго-што.* Захоўваць за сабою; утрымліваць у сабе. *Атрад трымаў абарону. Печ доўга трымае цяпло.* **3.** *каго-што.* Прымушаць знаходзіцца дзе-н., у якім-н. стане супраць волі. *Т. у палоне. Т. на галодным пайку.* **4.** *каго-што.* Мець у сябе, у сваёй уладзе, гаспадарцы; кіраваць кім-, чым-н. *Т. дзве каровы. Т. уладу ў сваіх руках.* **5.** *што.* Надаўшы чаму-н. якое-н. становішча, захоўваць яго некаторы час. *Т. рукі выцягнутымі ўперад.* **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *што.* Служыць апорай чаму-н.; падтрымліваць. *Бэлькі трымаюць столь.* **7.** *што.* Захоўваць дзе-н. *Т. грошы ў банку.* **8.** *каго.* Здаваць каму-н. за плату памяшканне (разм.). *Т. кватарантаў.* **9.** Рухацца ў якім-н. напрамку (разм.). *Трымай управа.* **10.** *што.* Мець кантакты з кім-, чым-н. *Т. сувязь з кім-н.* **11.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Утрымліваць, захоўваць (пра мароз і пад.). *Лёд трымае. Мароз трымае ўжо другі тыдзень.* **12.** *што.*

У спалучэнні з некаторымі назоўнікамі азначае: ажыццяўляць, здзяйсняць, выконваць тое, аб чым гаворыць назоўнік. *Т. слова. Т. экзамен.*

**ТРЫМЦЕ́ЦЬ**, -мчу́, -мці́ш, -мці́ць; -мці́м, -мціце́, -мця́ць; -мці́; *незак.* **1.** Дрыжаць, калаціцца ад моцнага хвалявання, унутранага пачуцця. *Т. ад страху.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Слаба свяціцца дрыжачым святлом. *На небе трымцелі зоркі.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Узмоцнена і часта біцца, заміраць. *Сэрца трымціць.* ‖ *наз.* **трымце́нне**, -я, *н.*

**ТРЫНА́ЦЦАЦЬ**, -і, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 13. ‖ *парадк.* **трына́ццаты**, -ая, -ае.

**ТРЫНО́ГА**, -і, *ДМ* -но́зе, *мн.* -і, -но́г, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што і *трыножак.* **2.** Пута, якім звязваюць пярэднія ногі каня з адной задняй.

**ТРЫНО́ЖАК**, -жка, *мн.* -жкі, -жкаў, *м.* Падстаўка на трох ножках, а таксама прыстасаванне рознага прызначэння, зробленае з трох палак, жэрдак і пад.

**ТРЫНО́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* Падстаўка ў выглядзе жалезнага абруча на трох ножках, на якой гатуюць ежу на адкрытым агні, а таксама козлы, да якіх падвешваецца кацёл над вогнішчам.

**ТРЫНО́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *трыножак.* **2.** Столік на трох ножках, на якім запальваўся свяшчэнны агонь або прыносілася ахвяра бажаству ў старажытных народаў.

**ТРЫНО́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *незак., каго.* Звязваць ногі каня трыногай. ‖ *зак.* **стрыно́жыць**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны.

**ТРЫН-ТРАВА́**, *у знач. вык.* (разм.). Усё адно, усё роўна, хоць бы што. *Яму ўсё гэта т.*

**ТРЫ́ПЕР**, -у, *м.* Тое, што і *ганарэя.* ‖ *прым.* **тры́перны**, -ая, -ае.

**ТРЫПЛА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Самалёт, які мае тры нясучыя паверхні, размешчаныя адна над адной.

**ТРЫПУ́ТНІК**, -у, *м.* Травяністая расліна сямейства трыпутнікавых з шырокім лісцем і дробнымі кветкамі ў коласападобным суквецці, якая расце абапал дарог, на лугах. ‖ *прым.* **трыпу́тнікавы**, -ая, -ае.

**ТРЫ́ПЦІХ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). **1.** Твор выяўленчага мастацтва, які складаецца з трох частак, аб'яднаных адным сюжэтам і ідэяй. **2.** Царкоўны абраз, які мае тры створкі.

**ТРЫСНЁГ**, -нягу́, *мн.* -нягі́, -нягоў, *м.* Вадзяная ці балотная шматгадовая расліна сямейства злакаў з каленчатым цвёрдым сцяблом і раскідзістай мяцёлкай. ○ **Цукровы трыснёг** — трапічная ці субтрапічная расліна сямейства злакаў, з соку якой здабываецца цукар. ‖ *прым.* **трысняго́вы**, -ая, -ае.

**ТРЫ́СТА**, трохсо́т, тромста́м, трымаста́мі, (аб) трохста́х, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 300. ‖ *парадк.* **трохсо́ты**, -ая, -ае.

**ТРЫСЦЕ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м. і* **ТРЫСЦЕ́НЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Прыбудова да хаты і пад. з трох сцен.

**ТРЫСЦЁ**, -я́, *н., зб.* Трыснёг. *Рэчка зарасла трысцём.*

**ТРЫСЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -цін, *ж.* Сцябло трыснягу.

**ТРЫСЦЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Шматгадовая травяністая расліна сямейства злакаў, якая расце на балотах і берагах вадаёмаў і нагадвае трыснёг.

**ТРЫТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Хвастатае земнаводнае сямейства саламандраў, падобнае на яшчарку.

**ТРЫУМВІРА́Т**, -у, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пагадненне трох асоб для сумеснай дзейнасці, звычайна палітычнай ці ваеннай. *Ваенны т.*

**ТРЫУ́МФ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У Старажытным Рыме: урачыстая сустрэча палкаводца і яго войска ў сувязі з дасягнутай перамогай. **2.** Наогул выдатны поспех, бліскучая перамога ў чым-н. *Т. балета.* ‖ *прым.* **трыумфа́льны**, -ая, -ае.

**ТРЫУМФАВА́ЦЬ**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; *незак.* Радавацца, весяліцца з прычыны перамогі над кім-н., поспеху ў чым-н.

**ТРЫУМФА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пераможца, той, каго сустракаюць з трыумфам. ‖ *прым.* **трыумфа́тарскі**, -ая, -ае.

**ТРЫЦІКА́ЛЕ**, *нескл., н.* Збожжавая культура, якая з'яўляецца гібрыдам пшаніцы і жыта.

**ТРЫЦЦАЦІГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* трыццацігоддзе. **2.** Які праіснаваў трыццаць гадоў.

**ТРЫЦЦАЦІГО́ДДЗЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Прамежак часу ў трыццаць гадоў. **2.** *чаго.* Гадавіна чаго-н., што адбылося трыццаць гадоў таму назад. *Т. перамогі.* ‖ *прым.* **трыццацігадо́вы**, -ая, -ае.

**ТРЫ́ЦЦАЦЬ**, -ццаці́, *Т* -ццаццю́, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 30. *Т. крокаў.* ‖ *парадк.* **трыцца́ты**, -ая, -ае.

**ТРЫЯ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, трыя́д, *ж.* Адзінства, якое ўтвараецца трыма асобнымі членамі, часткамі.

**ТРЭ**, *у знач. вык.* Тое, што і *трэба*[1].

**ТРЭ́БА**[1], *у знач. вык.* **1.** *з інф.* Неабходна, абавязкова патрэбна. *Т. ехаць. Т. чытаць.* **2.** *каму-чаму і з інф.* Патрабуецца, патрэбна. *Яму т. кватэра.* **3.** *безас., каму.* Пажадана. *Чаго табе т.?* ◊ **Гэта ж трэба** (разм.) — вокліч, які выражае здзіўленне. **Дзе трэба, дзе не трэба** — недарэчы, не да месца. **Што трэба, то трэба** (разм.) — абавязкова, бясспрэчна.

**ТРЭ́БА**[2], -ы, *мн.* -ы, трэб, *ж.* У праваслаўі: богаслужэбны абрад (хрысціны, вянчанне, паніхіда і пад.), які выконваецца святаром па просьбе веруючых.

**ТРЭ́БНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Кніга, у якой сабраны малітвы для адпраўлення трэб[2].

**ТРЭК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спартыўнае збудаванне з кругавой дарожкай для трэніровак і гоначных спаборніцтваў па вела- і мотаспорце. *Веласіпедны т.* ‖ *прым.* **трэ́кавы**, -ая, -ае. *Трэкавыя гонкі.*

**ТРЭЛЬ**[1], -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Хуткае і шматкратнае паўтарэнне гукаў, блізкіх па тоне, а таксама ўвогуле пералівісты дрыжачы гук. *Трэлі салаўя.*

**ТРЭЛЬ**[2], -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* (спец.). Спецыяльна пракладзеная дарога для тралёўкі драўніны, а таксама месца, дзе складваецца такая драўніна.

**ТРЭЛЬЯ́Ж**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Трохстворкавае люстра. **2.** Тонкая агароджа для павойных раслін. ‖ *прым.* **трэлья́жны**, -ая, -ае.

**ТРЭМБІ́ТА**, -ы, *ДМ* -біце, *мн.* -ы, -бі́т, *ж.* Гуцульскі народны духавы драўляны музычны інструмент у выглядзе вялікай трубы.

**ТРЭНА́Ж**, -у́, *м.* (спец.). Сістэма, комплекс трэніровачных практыкаванняў. *Цыркавы т.* ‖ *прым.* **трэна́жны**, -ая, -ае.

**ТРЭНАЖО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыстасаванне для трэнажу, трэніроўкі. ‖ *прым.* **трэнажо́рны**, -ая, -ае.

**ТРЭНД**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Заўважны напрамак, галоўная тэндэнцыя ў развіцці чаго-н. *Сусветны т. Быць у трэндзе.*

**ТРЭ́НЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст, які займаецца трэніроўкай спартсменаў. *Т. валейбольнай каманды. Т. па дзюдо.* ‖ *ж.* **трэ́нерка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.). ‖ *прым.* **трэ́нерскі**, -ая, -ае.

**ТРЭ́НЗЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Металічныя цуглі, пры дапамозе якіх кіруюць канём, а таксама ланцужок для ўтрымання муштука ў роце каня. ‖ *прым.* **трэ́нзельны**, -ая, -ае.

**ТРЭ́НІНГ**, -у, *м.* Сістэма, рэжым спартыўных трэніровак.

**ТРЭНІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Навучаючы каго-н., праводзіць сістэматычныя практыкаванні. *Т. хакеістаў.* **2.** *што.* Пастаяннай сістэматычнай работай, практыкаваннямі развіваць, умацоўваць што-н. *Т. памяць.* ‖ *зак.* **натрэнірава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. ‖ *звар.* **трэнірава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *зак.* **натрэнірава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся. ‖ *наз.* **трэніро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**ТРЭНІРО́ВАЧНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для трэніроўкі. *Т. касцюм. Трэніровачная пляцоўка.*

**ТРЭНІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* **1.** *гл.* трэніраваць. **2.** Вучэбныя заняткі, практыкаванні з мэтай удасканалення навыкаў, уменняў.

**ТРЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Рух прадмета па паверхні другога прадмета. *Дэталі знасіліся ад трэння.* **2.** Сіла, якая перашкаджае руху

аднаго цела па паверхні другога. **3.** *перан., мн.* -ні, -няў. Спрэчкі, сутыкненні, якія перашкаджаюць нармальнаму ходу справы.

**ТРЭПАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак. і незак., што* (спец.). Зрабіць (рабіць) трэпанацыю. *Т. чэрап.*

**ТРЭПАНА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). Хірургічная аперацыя, звязаная з ускрыццём коснай поласці з мэтай пранікнення да ачага хваробы. *Т. чэрапа. Т. зуба.* ‖ *прым.* **трэпанацы́йны**, -ая, -ае.

**ТРЭПА́НГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Марская беспазваночная жывёліна тыпу ігласкурых, мяса якой ужываецца ў ежу. ‖ *прым.* **трэпа́нгавы**, -ая, -ае.

**ТРЭСК**, -у, *м.* **1.** Сухі, рэзкі гук, які ўтвараецца пры ламанні, трэсканні, разрыванні і пад. чаго-н. *Т. галля.* **2.** Шум, які ўтвараецца пры рабоце механізмаў, інструментаў і пад. *Т. матора. Т. кулямёта.* **3.** *перан.* Шуміха, пустая балбатня (разм.). ◊ **З трэскам** (выгнаць, праваліцца і пад.) — ганебна, з вялікім скандалам.

**ТРЭ́СКА**, -і, *ДМ* трэ́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Тонкі кавалак дрэва, адчасаны ад бервяна, палена і пад.; шчэпка. *Прынесці трэсак на падпалку.*

**ТРЭ́СКАЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -аецца; *незак.* Даваць трэшчыны, расколвацца. *Зямля пачала т. ад спёкі.* ‖ *зак.* **патрэ́скацца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -аецца.

**ТРЭ́СНУТЫ**, -ая, -ае. Надколаты, з трэшчынай. *Т. гаршчок.*

**ТРЭ́СНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак., чым і без дап.* (разм.). Моцна стукнуцца, ударыцца. *Т. галавой аб сцяну.*

**ТРЭ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Стварыць трэск. *Пад нагамі трэснула сухая галінка.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Лопнуць, раскалоцца, разламацца, утварыць трэшчыну. **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Патрэскацца (пра скуру, губы і пад.). **4.** *каму, чым па чым і без дап.* Моцна стукнуць, ударыць (разм.). ◊ **Хоць трэсні** (разм.) — пра дарэмныя намаганні, старанні. ‖ *незак.* **трэ́скаць**, -ае (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **трэ́сканне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.).

**ТРЭ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адна з форм манапалістычнага аб'яднання прадпрыемстваў з цэнтралізацыяй вытворчых, камерцыйных або юрыдычных аперацый. *Будаўнічы т.* ‖ *прым.* **трэ́стаўскі**, -ая, -ае.

**ТРЭ́СЦІ**, трасу́, трасе́ш, трасе́; трасём, трасяце́, трасу́ць; трос, трэ́сла; трасі́; трэ́сены; *незак.* **1.** *каго-што.* Тузаць, хістаць штуршкамі. *Т. яблыню.* **2.** *безас.* Падкідаць, хістаць (пры яздзе па няроўнай дарозе). *На калдобінах воз трэсла.* **3.** *чым.* Часта махаць, ківаць чым-н. *Т. галавой.* **4.** *што.* Перамешваючы, рыхтаваць што-н. *Т. трасянку.* **5.** *каго-што і без дап.* Рабіць вобыск (разм.). **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *каго-што.* Выклікаць дрыжыкі (пра холад, ліхаманку, страх і пад.). *Ліхаманка трасе. Хворага трэсла ад высокай тэмпературы* (безас.). **7.** *перан., каго.* Непакоіць, пазбаўляць пакою, турбаваць. **8.** *што.* Узмахваючы чым-н., ачышчаць ад чаго-н., выбіваць. *Т. дыван. Т. кудзелю.* ‖ *зак.* **вы́трасці**, -су, -сеш, -се; -сі; -сены (да 8 знач.). ‖ *аднакр.* **трасяну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1, 2, 3, 5 і 8 знач.). ‖ *наз.* **трасе́нне**, -я, *н.* (да 1 і 8 знач.) *і* **трасяні́на**, -ы, *ж.* (да 2 знач.).

**ТРЭ́СЦІСЯ**, трасу́ся, трасе́шся, трасе́цца; трасёмся, трасяце́ся, трасу́цца; тро́сся, трэ́слася; трасі́ся; *незак.* **1.** Часта хістацца, калаціцца. *Лісты ціха трэсліся. Рукі трасуцца.* **2.** Падскокваць (пры яздзе па няроўнай дарозе). *Ехалі, трэсліся па камяністай дарозе.* **3.** *перан.* Хвалявацца за каго-, што-н. *Т. над дзецьмі.* **4.** *перад кім-чым і без дап.* Адчуваць страх, боязь. *Т. перад начальствам.*

**ТРЭ́ФЫ**, -аў, *адз.* трэ́фа, -ы, *ж.* Картачная масць з малюнкам чорнага крыжыка ў выглядзе трылісніку. ‖ *прым.* **трэфо́вы**, -ая, -ае. *Т. кароль.*

**ТРЭЦЕ...** (а таксама **трэця...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. трэці (у 1 і 3 знач.), напр.: *трэцечарговы, трэцеступенны, трэцеразрадны.*

**ТРЭЦЕСТУПЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Малаістотны, малаважны; пасрэдны па сваіх якасцях, па майстэрстве. *Т. акцёр. Трэцеступенная роля.*

**ТРЭ́ЦІ**, -яя, -яе. **1.** *гл.* тры. **2.** Асабіста не зацікаўлены ў чым-н., што датычыцца дзвюх другіх асоб; пабочны. *Трэцяя старана.* **3.** Не галоўны па значэнні, не першаразрадны. *Т. сорт. Іграць трэція ролі.* **4.** Які атрымліваецца пры дзяленні на тры. *Трэцяя частка.* **5.** *у знач. наз.* **трэ́цяе**, -яга, *н.* Страва, якая падаецца пасля другой; салодкая страва. *На трэцяе кампот.*

**ТРЭЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., каго.* Пагардліва абыходзіцца з кім-н., зневажальна адносіцца да каго-н. *Т. супрацоўніка.* ‖ *наз.* **трэці́раванне**, -я, *н.*

**ТРЭЦЬ**, -і, *мн.* -і, траце́й, *ж.* Адна з трох роўных частак, на якія дзеліцца што-н. *Да вечара прайшлі т. дарогі. Адна т.*

**ТРЭЦЯ...** (*гл.* **трэце...**). Першая састаўная частка складаных слоў, якая ўжыв. замест «трэце...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *трэцякласны, трэцясортны, трэцякурснік.*

**ТРЭЦЯКЛА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань трэцяга класа. ‖ *ж.* **трэцякла́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ТРЭЦЯКЛА́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адносіцца да памяшканняў, месцаў трэцяга класа на транспарце. *Т. вагон.* **2.** Невысокай якасці, малазначны, пасрэдны (разм.). *Т. спецыяліст.*

**ТРЭЦЯРА́ДНЫ**, -ая, -ае. Малаістотны, малазначны; пасрэдны.

**ТРЭ́ШЧЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -чын, *ж.* **1.** Шчыліна, вузкае паглыбленне на паверхні. *Сцяна дала трэшчыну.* **2.** *перан.* Пра разлад, разыходжанні паміж кім-н. *У іх адносінах утварылася т.*

**ТУАЛЕ́Т**, -а *і* -у, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Адзенне, убранне. *Багаты т. Дарожны т.* **2.** -у. Прывядзенне ў парадак, належны стан свайго выгляду (умыванне, прычэсванне і пад.). *Займацца туалетам.* **3.** -а. Столік з люстэркам, за якім прычэсваюцца, апранаюцца і пад. **4.** -а. Прыбіральня (у 2 знач.). ‖ *прым.* **туале́тны**, -ая, -ае (да 2—4 знач.). *Туалетнае мыла.*

**ТУ́БА**[1], -ы, *мн.* -ы, туб, *ж.* Вялікі цюбік. *Т. зубной пасты.* ‖ *прым.* **ту́бавы**, -ая, -ае.

**ТУ́БА**[2], -ы, *мн.* -ы, туб, *ж.* Духавы медны музычны інструмент самага нізкага рэгістра, які складаецца са шматразова сагнутай трубкі і раструба.

**ТУБЕРКУЛЁЗ**, -у, *м.* Інфекцыйная хвароба, пры якой пашкоджваюцца лёгкія, кішэчнік, косці, суставы і пад., выкліканая асобым мікробам — палачкай Коха. ‖ *прым.* **туберкулёзны**, -ая, -ае. *Т. дыспансер.*

**ТУБЕРКУЛЁЗНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). **1.** Чалавек, хворы на туберкулёз. **2.** Урач, спецыяліст па лячэнні туберкулёзу. ‖ *ж.* **туберкулёзніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 1 знач.).

**ТУБЫ́ЛЕЦ**, -льца, *мн.* -льцы, -льцаў, *м.* Тое, што і *туземец.* ‖ *ж.* **тубы́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **тубы́льскі**, -ая, -ае.

**ТУВІ́НЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Народ цюркскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Рэспублікі Тува, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **туві́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **туві́нскі**, -ая, -ае.

**ТУГА́**, -і́, *ДМ* туз́е, *ж.* Журба, маркота, смутак. *У песні чулася т.*

**ТУГАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Трохі тугі. *Тугаватая спружына. Работа ішла тугавата* (прысл.).

**ТУГАВУ́ХІ**, -ая, -ае. Які недачувае; глухаваты. ‖ *наз.* **тугаву́хасць**, -і, *ж.*

**ТУГАДУ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які марудна ўсведамляе, павольна думае. ‖ *ж.* **тугаду́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак.

**ТУГАПЛА́ЎКІ**, -ая, -ае. Які плавіцца пры вельмі высокай тэмпературы. *Т. метал.* ‖ *наз.* **тугапла́ўкасць**, -і, *ж.*

**ТУГІ́**, -а́я, -о́е. **1.** Моцна нацягнуты. *Тугая струна.* **2.** Да адказу напханы чым-н.; пругкі, ядраны. *Т. мяшок. Т. качан капусты.* **3.** Які цяжка сціскаецца або расцягваецца. *Тугая спружына.* **4.** *перан.* Які адчувае цяжкасці ў вырашэнні, выкананні чаго-н., з цяжкасцямі ўспрымае, засвойвае што-н. (разм.). *Т. на мову. Яму туга* (прысл.) *давалася работа.* ◊ **Тугі на вуха** (разм.) — які дрэнна чуе, глухаваты. ‖ *наз.* **ту́гасць**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ТУ́ГРЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Грашовая адзінка Манголіі.

**ТУДЫ́**, *прысл.* У той бок, у тое месца; *проціл.* сюды. *Калі ты паедзеш т.?* ◊ **Ні туды ні сюды** (разм.) — ні ў той, ні ў дру-

гі бок; ні з месца. **Туды і назад** — у абодва канцы.

**ТУЖЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Прасякнуты тугой. *Т. настрой.* **2.** Які наганяе, выклікае тугу. *Тужлівая цішыня.* ‖ *наз.* **тужлі́васць**, -і, *ж.*

**ТУЖУ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Форменная або дамашняя куртка, звычайна двухбортная.

**ТУ́ЖЫЦЦА**, -жуся, -жышся, -жыцца; *незак.* (разм.). Напружвацца, рабіць фізічныя намаганні; старацца. *Тужыўся падняць мех.*

**ТУЖЫ́ЦЬ**, тужу́, ту́жыш, ту́жыць; *незак.* **1.** Сумаваць, маркоціцца. *Жывуць багата і не тужаць.* **2.** Гараваць, перажываць якое-н. няшчасце. *Т. па сыне.*

**ТУЖЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -э́е; *незак.* Станавіцца тугім, больш тугім (у 1—3 знач.). *Струна тужэе. Цеста тужэе.* ‖ *зак.* **патужэ́ць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -э́е.

**ТУЗ**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Старшая ў кожнай масці ігральная карта вартасцю ў адно ачко. *Хадзіць з туза. Бубновы т.* **2.** *перан., чаго* або *які.* Багаты чалавек, высокапастаўленая, уплывовая асоба (разм.). *Фінансавыя тузы.*

**ТУЗАНІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Валтузня, штурханне; бойка. *Пачаліся крыкі і т.*

**ТУ́ЗАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** Рабіць хуткія, рэзкія рухі, рыўкі. *Бездапаможна т. ў вадзе.* **2.** Мучыцца, робячы што-н. (разм.). *Т. на сваім палетку.* **3.** Штурхаць адзін аднаго, біцца, змагацца (разм.). *Хлопчыкі тузаліся.* ‖ *аднакр.* **тузану́цца**, -нуся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся (да 1 знач.).

**ТУ́ЗАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак.* **1.** *каго-што, за што.* Торгаць, цягаць рыўкамі, рэзкімі рухамі. *Т. за вяроўку. Т. за валасы.* **2.** *каго-што.* Рытмічна торгаць, пранізваць (пра боль). *Палец нарываў і моцна тузаў.* **3.** *перан., каго.* Непакоіць, дакучаць якімі-н. патрабаваннямі, прыдзіркамі і пад. (разм.). *Яму немагчыма было працаваць, бо ўвесь дзень тузалі.* ‖ *аднакр.* **тузану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **ту́занне**, -я, *н.*

**ТУЗЕ́МЕЦ**, -мца, *мн.* -мцы, -мцаў, *м.* Ураджэнец, карэнны жыхар якой-н. краіны або мясцовасці (звычайна аддаленай ад цэнтраў цывілізацыі); абарыген. ‖ *ж.* **тузе́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак.

**ТУЗЕ́МНЫ**, -ая, -ае. Мясцовы, карэнны, уласцівы дадзенай мясцовасці, краіне. *Туземнае насельніцтва.*

**ТУЗЛУ́К**, -у́, *м.* (спец.). Раствор солі для засолу рыбы, ікры і іншых прадуктаў, а таксама скураной сыравіны. ‖ *прым.* **тузлу́чны**, -ая, -ае.

**ТУК**, -у, *м.* **1.** Растоплены тлушч. *Мачаць бульбу ў т.* **2.** Мінеральнае ўгнаенне. ‖ *прым.* **ту́кавы**, -ая, -ае.

**ТУ́ЛАВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Цела чалавека або жывёлы без галавы і канечнасцей.

**ТУЛІ́ЦЦА**, тулюся, ту́лішся, ту́ліцца; *незак.* **1.** Гарнуцца, прыціскацца да каго-, чаго-н. *Дзіця туліцца да маці.* **2.** *перан.* Адчуваць большую прыязнасць да каго-н., быць больш адданым каму-н. *Хлопчык больш туліўся да бацькі.* **3.** Знаходзіць прытулак, прыстанішча дзе-н. у цеснаце. *У цеснай хаце тулілася сям'я з дзевяці чалавек.* **4.** *перан.* Размяшчацца, знаходзіцца дзе-н. у зацішным месцы. *Вёска тулілася каля лесу.*

**ТУЛІ́ЦЬ**, тулю́, ту́ліш, ту́ліць; *незак., каго-што.* **1.** Гарнуць да сябе з ласкай, пяшчотай. *Маці туліла дзяўчынку да грудзей.* **2.** *перан.* Быць прытулкам для каго-, чаго-н. *Лес туліў партызан. Густы зараснік туліў старую хатку.*

**ТУЛЯ́ГА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м., ДМ* -ля́зе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -ля́г. **1.** Чалавек, які туляецца, пазбягае сустрэч; бадзяга. **2.** Баязлівец, нерашучы чалавек (разм.).

**ТУЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* **1.** Блукаць, хадзіць без пэўнай мэты; бадзяцца. *Усё жыццё туляўся без ніякага занятку.* **2.** Знаходзіцца дзе-н., хаваючыся ад каго-, чаго-н. *Туляўся ў лесе, пакуль партызан не знайшоў.* ‖ *наз.* **туля́нне**, -я, *н.*

**ТУМА́К**, -а́ *і* -у́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** -а́. Помесь зайца-беляка з зайцам-русаком. **2.** -у́. Фарбаванае футра зайца.

**ТУМА́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Згушчэнне дробных кропелек вады або ледзяных крышталікаў у прыземных слаях атмасферы, якое робіць паветра непразрыстым. *Над лугам слаўся густы т.* **2.** Непразрыстая заслона дыму, пылу і пад. *Махорачны т.* **3.** *перан.* Тое, што перашкаджае правільна ўспрымаць і разумець навакольны свет. *Т. у галаве.* ‖ *прым.* **тума́нны**, -ая, -ае.

**ТУМА́НІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). З частымі або густымі туманамі. *Туманістая восень. Туманістыя ночы.* ‖ *наз.* **тума́ністасць**, -і, *ж.*

**ТУМА́НІЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -іцца; *незак.* **1.** Засцілацца, ахутвацца туманам. *Удалечыні туманіцца лес.* **2.** *перан.* Пра вочы, погляд, памяць і пад.: пазбаўляцца здольнасці добра бачыць, разумець (разм.). *Галава туманіцца.* ‖ *зак.* **затума́ніцца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -іцца.

**ТУМА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *незак., што.* **1.** Засцілаць, рабіць нябачным што-н. *Дым тумaніў неба.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Перашкаджаць добра бачыць або ясна разумець, успрымаць што-н. *Слёзы туманілі вочы. Т. галаву.* ‖ *зак.* **затума́ніць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены.

**ТУМА́ННАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* туманны. **2.** Густы туман (у 1 знач.). **3.** Міжзорнае воблака, якое складаецца з пылу, газу і плазмы. *Галактычныя туманнасці.*

**ТУМА́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* туман. **2.** Ахутаны, засланы туманам. *Т. бераг ракі. Туманная раніца.* **3.** Расплывучаты, няясны; бачны як цераз туман. *Вырысоўваліся туманныя сілуэты будынкаў.* **4.** *перан.* Які мае няясны сэнс; незразумелы. *Туманныя разважанні.* **5.** *перан.* Невыразны, цьмяны. *Туманныя вочы. Т. позірк.* ‖ *наз.* **тума́ннасць**, -і, *ж.* (да 3—5 знач.).

**ТУМАНО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння шчыльнасці туману.

**ТУ́МБА**, -ы, *мн.* -ы, тумб *і* -аў, *ж.* **1.** Невысокі слупок каля дарогі або тратуара. *Бетонная т.* **2.** Падстаўка для чаго-н. у выглядзе слупка. **3.** Круглае збудаванне для наклейвання аб'яў, афіш і пад. *Рэкламная т.* **4.** *перан.* Пра тоўстага непаваротлівага чалавека (часцей жанчыну) (разм., зневаж.). ‖ *памянш.* **ту́мбачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ТУ́МБАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** *гл.* тумба. **2.** Невялікі столік-шафка, які ставяць звычайна каля ложка.

**ТУНГУ́СЫ**, -аў, *адз.* -гу́с, -а, *м.* Ранейшая назва эвенкаў. ‖ *ж.* **тунгу́ска**, -і, *ДМ* -гу́сцы, *мн.* -і, -сак. ‖ *прым.* **тунгу́скі**, -ая, -ае.

**ТУ́НДРА**, -ы, *ж.* Прыродная зона арктычнага пояса, якая характарызуецца суровым кліматам, бязлессем, вечнай мерзлатой, беднай расліннасцю, а таксама тып расліннасці, характэрны для гэтай зоны. ‖ *прым.* **ту́ндравы**, -ая, -ае.

**ТУНЕ́Ц**, -нца́, *мн.* -нцы́, -нцо́ў, *м.* Марская прамысловая рыба сямейства скумбрыевых. ‖ *прым.* **тунцо́вы**, -ая, -ае.

**ТУНІ́КА**, -і, *ДМ* -ні́цы, *мн.* -і, -ні́к, *ж.* **1.** Старажытнарымскае адзенне накшталт кашулі, якое насілі пад тогай. **2.** Жаночая кашуля прамога пакрою без каўняра з адным або двума бакавымі разрэзамі.

**ТУНІ́СЦЫ**, -аў, *адз.* туні́сец, -ні́сца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Туніса. ‖ *ж.* **туні́ска**, -і, *ДМ* -ні́сцы, *мн.* -і, -сак. ‖ *прым.* **туні́скі**, -ая, -ае.

**ТУНЭ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Падземны пераход або праезд, пракладзены пад ракой, гарой або пад якім-н. іншым збудаваннем. *Праходка тунэля. Т. працягласцю ў чатырыста метраў.* ‖ *прым.* **тунэ́льны**, -ая, -ае.

**ТУПА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. тупы (у 2, 3 і 8 знач.), напр.: *тупавугольны, тупагаловы, тупаморды.*

**ТУПАГАЛО́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Тупы, разумова абмежаваны, някемлівы. ‖ *наз.* **тупагало́васць**, -і, *ж.*

**ТУПАНІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Тупанне нагамі, гукі гэтага тупання. **2.** Хаджэнне па розных інстанцыях у сувязі з вырашэннем якой-н. справы. *Тупаніны было на цэлы тыдзень.*

**ТУПАНО́СЫ**, -ая, -ае. **1.** З шырокім або тоўстым носам, дзюбай (пра жывых істот). *Т. сабака.* **2.** З тупым, шырокім носам, наском (пра прадметы). *Тупаносыя чаравікі.*

**ТУ́ПАТ**, -у, *М* -паце, *м.* Стук, шум ад удараў ног аб цвёрдую паверхню чаго-н.

пры хадзьбе, бегу і пад., а таксама самі такія ўдары. *Чуўся конскі т.*

**ТУПАТА́ЦЬ**, -пачу́, -по́чаш, -по́ча; -пачы́; *незак.* (разм.). Тое, што і *тупацець.* ‖ *наз.* **тупата́нне**, -я, *н.*

**ТУПАТНЯ́**, -і́, *ж.* (разм.). Тое, што і *тупаніна.*

**ТУПАЦЕ́ЦЬ**, -пачу́, -паці́ш, -паці́ць; -пацім, -паціце́, -пацяць; -паці́; *незак.* **1.** Часта і моцна тупаць нагамі пры хадзьбе, бегу і пад. **2.** Часта стукаць, тупаць нагамі аб падлогу, зямлю. ‖ *наз.* **тупаце́нне**, -я, *н.*

**ТУ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Стукаць, біць нагой (нагамі) аб зямлю, падлогу і пад. *Т. нагамі.* **2.** Хадзіць (разм.). *Маці тупала каля печы.* ‖ *аднакр.* **ту́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1 знач.). ‖ *наз.* **ту́панне**, -я, *н.*

**ТУПЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Станавіцца тупым (у 1, 3, 5 і 6 знач.). *Нажы тупеюць. Погляд тупее. Боль тупее.*

**ТУПІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Вуліца, якая не мае скразнога праходу, праезду. *Машына заехала ў т.* **2.** Чыгуначны станцыйны пуць, злучаны з іншымі пуцямі толькі адным канцом. *Паравоз стаяў у тупіку.* **3.** *перан.* Безвыходнае становішча, а таксама тое, што не мае перспектывы далейшага развіцця. *Вывесці гаспадарку з тупіка. Перагаворы зайшлі ў т.* ‖ *памянш.* **тупічо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **тупіко́вы**, -ая, -ае.

**ТУПІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., ту́піцца; *незак.* Станавіцца тупым (у 1 знач.), тупейшым. *Сякера тупіцца.* ‖ *зак.* **затупі́цца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., зату́піцца, **вы́тупіцца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., вы́тупіцца *і* **ступі́цца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., сту́піцца.

**ТУПІ́ЦЬ**, туплю́, ту́піш, ту́піць; ту́плены; *незак., што.* Рабіць тупым (у 1 знач.). *Т. нож.* ‖ *зак.* **затупі́ць**, -уплю́, -у́піш, -у́піць; -у́плены, **вы́тупіць**, -плю, -піш, -піць *і* **ступі́ць**, ступлю́, сту́піш, сту́піць; сту́плены.

**ТУ́ПКІ**, -ая, -ае (разм.). Цвёрды, утаптаны (пра зямлю, грунт). *Тупкае дно ракі.*

**ТУПЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Недастаткова навостраны, такі, якім цяжка рэзаць, пілаваць, калоць і пад. *Т. нож. Тупая піла.* **2.** Які не звужаецца або мала звужаецца ў канцы, з закругленым канцом. *Туфлі з тупымі насамі.* **3.** *перан.* Разумова абмежаваны, няздольны, някемлівы. *Т. вучань. Т. як абух.* **4.** *перан.* Які прыйшоў у стан атупення; раўнадушны, абыякавы. *Тупое паслушэнства.* **5.** Невыразны, бяздумны, бяссэнсавы. *Т. погляд.* **6.** Не востры, не вельмі адчувальны; глухі (пра боль). *Т. боль.* **7.** Глухі, не рэзкі, не звонкі (пра гукі). *Пачуўся т. трэск.* **8.** Пра вугал: большы за 90°. ‖ *наз.* **ту́пасць**, -і, *ж.* (у 3 і 4 знач.).

**ТУР**[1], -а, *мн*, -ы, -аў, *м.* **1.** Адзін круг танца. *Т. вальса.* **2.** Асобны этап якога-н. спаборніцтва, конкурсу і пад. *Першы т. чэмпіянату па баскетболе.* **3.** Этап, частка якой-н. падзеі, мерапрыемства і пад. *Першы т. выбараў* (пры шматступеннай выбарчай сістэме).

**ТУР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вымерлы дзікі бык, продак буйной рагатай жывёлы. **2.** Горны каўказскі казёл.

**ТУР**[3], -у, *мн*, -ы, -аў, *м.* **1.** Падарожжа, турыстычная паездка. **2.** Гастрольная паездка артыста ці музычнага калектыву.

**ТУРА́**, -ы́, *мн.* ту́ры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) туры́, тур, *ж.* (разм.). Шахматная фігура, якая мае форму вежы; ладдзя.

**ТУРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак.* Тое, што і *у́торыць.*

**ТУРБА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. турбінны, напр.: *турбаагрэгат, турбабудаўнічы, турбабур, турбабурэнне, турбагенератар, турбакампрэсар, турбаракетны, турбаход.*

**ТУРБАБУДАВА́ННЕ**, -я, *н.* Вытворчасць турбін. ‖ *прым.* **турбабудаўні́чы**, -ая, -ае.

**ТУРБАВА́ЦЦА**, -бу́юся, -бу́ешся, -бу́ецца; -бу́йся; *незак.* **1.** Праяўляць клопат, трывожыцца аб кім-, чым-н. *Т. за дзяцей. Т. за будучы ўраджай.* **2.** Хвалявацца, непакоіцца. *Не турбуйся, усё будзе добра.*

**ТУРБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *незак., каго-што.* **1.** Парушаць чый-н. спакой, непакоіць каго-н., перашкаджаць каму-н. *На рабоце яго не турбавалі.* **2.** Хваляваць, трывожыць. *Яго турбавала незвычайная цішыня вакол.*

**ТУРБАВІНТАВЫ́**, -а́я, -о́е (спец.). У якім паветраны вінт (прапелер) прыводзіцца ў рух газавай турбінай. *Т. рухавік. Т. самалёт.*

**ТУРБАВО́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лакаматыў, які прыводзіцца ў рух паравой або газавай турбінай. ‖ *прым.* **турбаво́зны**, -ая, -ае.

**ТУРБАГЕНЕРА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Электрычны генератар, які прыводзіцца ў рух паравой ці газавай турбінай. ‖ *прым.* **турбагенера́тарны**, -ая, -ае.

**ТУРБА́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -ба́з, *ж.* Турысцкая база. *Пуцёўка на турбазу.*

**ТУРБА́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Галаўны ўбор у народаў Азіі і Паўночнай Афрыкі ў выглядзе палотнішча лёгкай тканіны, абматанага вакол галавы.

**ТУРБАРЭАКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае газавую турбіну, што прымае ўдзел у стварэнні рэактыўнай цягі. *Т. рухавік. Т. самалёт.*

**ТУРБА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (разм.). Турбота, клопат.

**ТУРБАЭЛЕКТРАХО́Д**, -а, *М* -хо́дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Судна, на якім электрычны генератар прыводзіцца ў дзеянне паравой ці газавай турбінай. ‖ *прым.* **турбаэлектрахо́дны**, -ая, -ае.

**ТУРБІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -бі́н, *ж.* Рухавік, які ператварае кінетычную энергію вады, пары, газу ў механічную работу. *Паравая т.* ‖ *прым.* **турбі́нны**, -ая, -ае.

**ТУРБО́ТА**, -ы, *ДМ* -бо́це, *мн.* -ы, -бо́т, *ж.* **1.** Заклапочанасць чым-н., неадольнае жаданне ажыццявіць што-н. *Турботы яго не памяншаліся.* **2.** Апека над кім-н., клопат, увага да каго-н. *Т. аб дзецях.*

**ТУРБО́ТЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *турботны.* ‖ *наз.* **турбо́тлівасць**, -і, *ж.*

**ТУРБО́ТНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які турбуецца, клапоціцца аб кім-, чым-н. *Турботная гаспадыня.* **2.** Напоўнены рознымі турботамі, неспакойны. *Т. дзень. Турботная справа.* ‖ *наз.* **турбо́тнасць**, -і, *ж.*

**ТУ́РКІ**, -аў, *адз.* ту́рак, -рка, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Турцыі. ‖ *ж.* **турча́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **туре́цкі**, -ая, -ае.

**ТУРКМЕ́НЫ**, -аў, *адз.* -ме́н, -а, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Туркменістана. ‖ *ж.* **туркме́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **туркме́нскі**, -ая, -ае.

**ТУРМА́**, -ы́, *мн.* ту́рмы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) турмы́, ту́рмаў, *ж.* **1.** Месца зняволення, будынак, дзе ўтрымліваюцца асобы, пазбаўленыя волі. *Сядзець у турме.* **2.** Пакаранне зняволеннем. *Прайсці праз турму.* **3.** *перан.* Месца, дзе прыгнятаюць, дзе цяжка жывецца. ◊ **Турма плача** *па кім* (разм., неадабр.) — пра таго, хто заслугоўвае пакарання. ‖ *прым.* **турэ́мны**, -ая, -ае.

**ТУ́РМАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Голуб асобай пароды, які мае здольнасць куляцца пры палёце.

**ТУРНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Гімнастычны снарад: перакладзіна, гарызантальна ўмацаваная на дзвюх стойках. *Практыкаванні на турніку.* ‖ *прым.* **турніко́вы**, -ая, -ае.

**ТУРНІКЕ́Т**, -а, *М* -ке́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльнае прыстасаванне для пропуску людзей па чарзе па адным. *Прайсці цераз т.*

**ТУРНІ́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спаборніцтва рыцараў у Заходняй Еўропе ў сярэднія вякі. **2.** Спартыўныя спаборніцтвы, асабістыя ці камандныя, у якіх усе ўдзельнікі сустракаюцца паміж сабой адзін або два разы. *Баскетбольны т. Міжнародны шахматны т.* ‖ *прым.* **турні́рны**, -ая, -ае.

**ТУРНУ́ЦЬ** *гл.* турыць.

**ТУРНЭ́**, *нескл., н.* **1.** Падарожжа па кругавым маршруце. *Т. вакол свету.* **2.** Паездка артыстаў, спартсменаў на гастрольныя выступленні, спаборніцтвы і пад.

**ТУРНЭ́ПС**, -у, *м.* Кармавая рэпа. ‖ *прым.* **турнэ́псавы**, -ая, -ае.

**ТУРУХТА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Балотная птушка сямейства бакасавых з цёмным апярэннем, якая водзіцца ў тундры і ў лясной зоне Еўразіі.

**ТУРЧА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -чы́ць; *незак.* (разм.). **1.** Утвараць характэрныя для жаб гукі. *У балоце турчаць жабы.* **2.** Тарахцець (пра гукі машын у час работы). *Трактары турчаць усю ноч.* ‖ *наз.* **турча́нне**, -я, *н.*

**ТУРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Падарожжа па сваёй краіне або ў іншыя краіны, калі адпачынак спалучаецца з элементамі спорту ці пазнавальнымі задачамі. *Горны т. Міжна-*

*родны т.* ‖ *прым.* **турыстычны**, -ая, -ае. *Турыстычны маршрут.*

**ТУРЫСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца турызмам. ‖ *ж.* **турыстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **турысцкі**, -ая, -ае. *Турысцкая група.*

**ТУРЫЦЬ**, туру́, ту́рыш, ту́рыць; *незак., каго (што)* (разм.). Выганяць, прараганяць адкуль-н. ‖ *зак.* **вытурыць**, -ру, -рыш, -рыць; -раны *і* **пратуры́ць**, -туру́, -ту́рыш, -ту́рыць; -ту́раны. ‖ *аднакр.* **турну́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нуць; -ні.

**ТУРЭМШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Наглядчык у турме. **2.** *перан.* Той, хто груба парушае свабоду і дэмакратыю. ‖ *ж.* **турэмшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ТУТ**[1], *прысл.* **1.** У гэтым месцы. *Тут многа ягад. Тут пабудуем дом.* **2.** У гэты час, у гэты момант. *А тут і бацька зайшоў у хату.* **3.** *у знач. часц.* У спалучэнні з займеннікамі і прыслоўямі «як», «які», «дзе», «куды», «калі» ўжыв. у рытарычных пытаннях для ўзмацнення экспрэсіўнасці выказвання. *І як тут яму не верыць? І дзе тут дзенешся?* **4.** *у знач. часц.* Выкарыстоўваецца пры пераходзе да якой-н. тэмы, прыкладу. *Тут мы ўбачылі, што вярнуўся гаспадар.* ◊ **Тут жа** (разм.) — адразу ж. **Тут як тут** (разм.) — адразу, раптоўна з'явіўся, аказаўся і пад.

**ТУТ**[2], -а *і* -у, *М* ту́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Тутавае дрэва, тутаўнік. **2.** -у, *зб.* Драўніна гэтага дрэва. ‖ *прым.* **ту́тавы**, -ая, -ае. *Т. ліст. Сямейства тутавых* (наз.).

**ТУТАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне тутаводства.

**ТУТАВО́ДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне тутавага дрэва як галіна шаўкаводства. ‖ *прым.* **тутаво́дчы**, -ая, -ае.

**ТУ́ТАЎНІК**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а. Паўднёвае дрэва сямейства тутавых, лісце якога выкарыстоўваецца як корм для шаўкапрада; тутавае дрэва, шаўкоўніца. **2.** -у, *зб.* Драўніна гэтага дрэва.

**ТУТЭЙШЫ**, -ая, -ае. Які родам з гэтай мясцовасці, жыве тут, не прыезджы. *Тутэйшыя жыхары.*

**ТУФ**, -у, *м.* Порыстая горная парода вулканічнага або асадачнага паходжання, якая выкарыстоўваецца як будаўнічы матэрыял. ‖ *прым.* **ту́фавы**, -ая, -ае.

**ТУ́ФЛІ**, ту́фель *і* -фляў, *адз.* ту́фель, -фля, *м.* Абутак, які закрывае нагу ніжэй шчыкалаткі. *Жаночыя т.* ‖ *памянш.* **ту́флікі**, -аў, *адз.* ту́флік, -а, *м. і* **ту́фелькі**, -лек *і* -лькаў, *адз.* ту́фелька, -і, *ж.* ‖ *прым.* **ту́фельны**, -ая, -ае *і* **ту́флевы**, -ая, -ае.

**ТУХЛАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Трохі тухлы. *Тухлаватае мяса.*

**ТУХЛІ́НА**, -ы, *ж.* (разм.). Пратухлыя, сапсаваныя прадукты, а таксама непрыемны пах ад іх.

**ТУ́ХЛЫ**, -ая, -ае. Пратухлы, з непрыемным пахам. *Тухлая рыба.* ‖ *наз.* **ту́хласць**, -і, *ж.*

**ТУХЛЯ́ЦІНА**, -ы, *ж.* (разм.). Пратухлыя прадукты, а таксама пах ад такіх прадуктаў.

**ТУ́ХНУЦЬ**[1], 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не; тух, ту́хла; *незак.* **1.** Пераставаць гарэць, свяціць; гаснуць. *Агонь тухне. Свечка тухне.* **2.** *перан.* Слабець, памяншацца. *Надзея тухне.* ‖ *зак.* **патýхнуць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не; пату́х, -хла, **ату́хнуць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не; ату́х, -хла *і* **сту́хнуць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не; стух, -хла.

**ТУ́ХНУЦЬ**[2], 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не; тух, ту́хла; *незак.* Загнівацьі непрыемна пахнуць; пратухаць. ‖ *зак.* **сту́хнуць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -не; стух, -хла.

**ТУ́ЦІ**, *нескл., н.* (спец.). Выкананне музычнага твора ўсім складам аркестра, хору.

**ТУШ**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Кароткае музычнае прывітанне ў гонар каго-н. *Сыграць т.*

**ТУШ**[2], -ы, *ж.* Чорная ці каляровая фарба для чарчэння, малявання або пісьма. *Пісаць тушшу.* ‖ *прым.* **ту́шавы**, -ая, -ае.

**ТУШ**[3], -у, *м.* Выпадковы дотык да шара пры гульні на більярдзе, што лічыцца за ўдар.

**ТУ́ША**, -ы, *мн.* -ы, туш, *ж.* **1.** Асвежаванае і выпатрашанае цела забітай жывёліны. *Т. авечкі.* **2.** Пра вялікага, поўнага чалавека (разм., неадабр.). ‖ *памянш.* **ту́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (да 1 знач.). *Т. труса.*

**ТУШАВА́ЦЦА** *гл.* стушавацца.

**ТУШАВА́ЦЬ**[1], -шу́ю, -шу́еш, -шу́е; -шу́й; -шава́ны; *незак., што.* Наносіць цені на малюнак, пакрываць тушоўкай (у 2 знач.). ‖ *зак.* **затушава́ць**, -шу́ю, -шу́еш, -шу́е; -шу́й; -шава́ны. ‖ *наз.* **тушава́нне**, -я, *н. і* **тушо́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **тушава́льны**, -ая, -ае.

**ТУШАВА́ЦЬ**[2], -шу́ю, -шу́еш, -шу́е; -шу́й; *незак.* Выпадкова дакранацца да більярднага шара, рабіць туш[3].

**ТУ́ШАНЫ**, -ая, -ае. Прыгатаваны варкай у закрытай пасудзіне. *Тушанае мяса.*

**ТУШКА́НЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Млекакормячая жывёліна атрада грызуноў з вельмі доўгімі заднімі нагамі і хвастом, якая жыве ў пустынях і стэпах. ‖ *прым.* **тушка́нчыкавы**, -ая, -ае. *Сямейства тушканчыкавых* (наз.).

**ТУШО́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* Кансерваванае тушанае мяса. *Свіная т.*

**ТУШО́ЎКА**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* тушаваць[1]. **2.** Цені, штрыхі, якія наносяцца на малюнак, план, карту і пад. *Палажыць тушоўку на малюнак. Густая т.*

**ТУШЫ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Прыстасаванне для тушэння вуглёў. **2.** Накрыўка для трубы самавара.

**ТУШЫ́ЦЬ**[1], тушу́, ту́шыш, ту́шыць; ту́шаны; *незак., што.* **1.** Спыняць гарэнне чаго-н.; гасіць. *Т. касцёр. Т. лямпу.* **2.** *перан.* Аслабляць, памяншаць. *Т. спрэчку. Т. злосць.* ‖ *зак.* **затушы́ць**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны, **атушы́ць**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны, **абтушы́ць**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны *і* **патушы́ць**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны. ‖ *наз.* **тушэ́нне**, -я, *н.*

**ТУШЫ́ЦЬ**[2], тушу́, ту́шыш, ту́шыць; ту́шаны; *незак., што.* Варыць на малым агні ў закрытай пасудзіне. *Т. мяса. Т. бульбу.* ‖ *зак.* **стушы́ць**, стушу́, сту́шыш, сту́шыць; сту́шаны *і* **патушы́ць**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны. ‖ *наз.* **тушэ́нне**, -я, *н.*

**ТУШЭ́**, *нескл., н.* (спец.). **1.** Характар, спосаб дакранання да клавішаў фартэпіяна пры ігры. *Мяккае т. Моцнае т.* **2.** У спорце: укол, удар, нанесены фехтавальшчыкам саперніку ў адпаведнасці з правіламі, а таксама дотык барца абедзвюма лапаткамі да дывана, які абазначае яго паражэнне.

**ТУ́Я**, ту́і, *мн.* ту́і, туй, *ж.* Вечназялёнае хвойнае дрэва сямейства кіпарысавых з дробным лускападобным лісцем. ‖ *прым.* **ту́евы**, -ая, -ае.

**ТХАРАНЯ́** *і* **ТХАРАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня тхара.

**ТХЛАНЬ**, -і, *ж.* (разм.). **1.** Балоцістае месца. *Конь разам з коннікам праваліўся ў т.* **2.** Гніль, цвіль, сырасць. *Патыхала тхланню.*

**ТХЛІ́НА**, -ы, *ж.* Тухлы, гнілы пах. *Тхлінаю пахне.*

**ТХЛО**, -а, *н.* (разм.). Тое, што і *тхліна. З балот цягнула тхлом.*

**ТХНУЦЬ**, -не; *безас., незак., чым.* Несці, патыхаць, перадавацца па паветры (пра пахі). *З пограба тхнула сырасцю.*

**ТХОР**, тхара́, *мн.* тхары́, тхаро́ў, *м.* **1.** Драпежная млекакормячая жывёліна сямейства куніцавых з каштоўным футрам. **2.** Футра гэтай жывёліны. ‖ *прым.* **тхаро́вы**, -ая, -ае (да 2 знач.) *і* **тхары́ны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Тхаровае футра. Тхарыная нара.*

**ТЫ**, цябé, табé, цябé, табóй *і* -óю, аб табé; *займ. асаб. 2 ас. адз.* **1.** Ужыв. пры звароце да блізкай, знаёмай асобы або пры грубым, фамільярным звароце. *Куды ты паедзеш?* **2.** Выкарыстоўваецца для абагульненага абазначэння чалавека наогул (разм.). *Калі ты гаспадар, то глядзі гаспадарку.* **3.** *у знач. часц.* **табé**. Выкарыстоўваецца для выказвання прыкрасці, расчаравання, пагрозы і пад. *Гэта табе так не пройдзе.* **4.** У спалучэнні з выклічнікамі ўжыв. для ўзмацнення экспрэсіўнасці выказвання. *Ах ты, дурань!* ◊ **А што ты думаеш** (разм.) — а чаму б і не зрабіць. **На ты** *з кім* — (быць) у такіх адносінах, калі пры звароце адзін да аднаго гавораць «ты». **Ух ты!** — выкарыстоўваецца пры выказванні здзіўлення, захаплення і пад.

**ТЫБЕ́ТЦЫ**, -аў, *адз.* -бе́цец, -бе́тца, *м.* Карэннае насельніцтва Тыбета. ‖ *ж.* **тыбе́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **тыбе́цкі**, -ая, -ае.

**ТЫГЕЛЬ**, -гля, *мн.* -глі, -гляў, *м.* **1.** Пасудзіна з вогнетрывалага матэрыялу для плаўкі, варкі, нагрэву чаго-н. на моцным агні. **2.** Металічная пліта друкарскай машыны для прыціскання паперы да пакрытай фарбай друкарскай формы (спец.). ‖ *прым.* **тыгельны**, -ая, -ае.

**ТЫГР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйная драпежная млекакормячая жывёліна сямейства кашэчых з паласатай шкурай. ‖ *прым.* **тыгравы**, -ая, -ае *і* **тыгры́ны**, -ая, -ае.

**ТЫГРАНЯ́** *і* **ТЫГРАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня тыгра.

**ТЫГРЫ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́ц, *ж.* Самка тыгра.

**ТЫ́ДЗЕНЬ**, -дня, *мн.* -дні, -дняў, *м.* **1.** Адзінка вымярэння часу, роўная сямі дням, ад панядзелка да нядзелі ўключна. *Панядзелак — першы дзень тыдня.* **2.** Адрэзак часу ў сем дзён, сямідзённы тэрмін. *Застаўся т. адпачынку.* **3.** *чаго* або *які.* Сем дзён, прысвечаных якому-н. грамадскаму мерапрыемству, прапагандзе чаго-н. і пад. *Т. паэзіі.* ‖ *прым.* **тыднёвы**, -ая, -ае.

**ТЫ́КАЦЦА**[1], -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Стукацца, упірацца ў што-н. *Кот бегаў, тыкаўся мордай у плот.* **2.** Мітусліва рухацца, стараючыся пранікнуць куды-н. *Т. ва ўсе дзверы.* ‖ *зак.* **ткну́цца**, ткнуся, ткнешся, ткне́цца; ткнёмся, ткняце́ся, ткну́цца; ткні́ся. ‖ *наз.* **ты́канне**, -я, *н.*

**ТЫ́КАЦЦА**[2], -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм., неадабр.). Звяртацца да каго-н. на «ты». ‖ *наз.* **ты́канне**, -я, *н.*

**ТЫ́КАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; -аем, -аеце, -аюць; *незак.* **1.** *у каго-што* або *чым.* Порхаць чым-н., пастукваць. *Т. кіем у зямлю.* **2.** *што.* Утыкаць, усоўваць, уводзіць куды-н., у што-н. *Т. кнопкі ў сцяну. Т. ва ўсе камісіі* (перан.). **3.** *што* або *чым.* Падносіць блізка, паказваць на каго-, што-н. *Т. пальцам у кожную літару.* **4.** *перан., каго-што* або *кім-чым.* Пастаянна напамінаць, гаварыць аб кім-, чым-н., упікаць чым-н., папракаць (разм., неадабр.). ◊ **Тыкаць носам** (разм., неадабр.) — звяртаць чыю-н. увагу на што-н. (віну, учынак і пад.; звычайна ў грубай форме). ‖ *зак.* **ткнуць**, ткну, ткнеш, ткне; ткнём, ткняце́, ткнуць; ткні *і* **ты́кнуць**, ты́кну, ты́кнеш, ты́кне; ты́кні. ‖ *наз.* **ты́канне**, -я, *н.*

**ТЫ́КАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *незак., каму* і *без дап.* (разм., неадабр.). Звяртацца да каго-н. на «ты». ‖ *наз.* **ты́канне**, -я, *н.*

**ТЫЛ**, -у, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Задняя частка, старана чаго-н.; частка, старана, процілеглая пярэдняй. *Зайсці з тылу.* **2.** Тэрыторыя, размешчаная ззаду лініі фронту. *Ударыць у т. праціўніку.* **3.** звычайна *мн.* Сукупнасць часцей, падраздзяленняў і ўстаноў, якія ствараюцца для матэрыяльнага, тэхнічнага і медыцынскага забеспячэння войск. **4.** *перан.* У час вайны: уся краіна ў процілегласць фронту. *Працаўнікі тылу.* ‖ *прым.* **тылавы́**, -а́я, -о́е.

**ТЫЛАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Той, хто знаходзіцца, служыць у тыле (у 3 і 4 знач.).

**ТЫ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ззаду каго-, чаго-н., з'яўляецца задняй стараной чаго-н. *Т. бок далоні.*

**ТЫМ**, *часц. ўзмацн.* **1.** Ужыв. з прыметнікамі і прыслоўямі вышэйшай ступені, каб падкрэсліць большую ступень праяўлення прыметы. **2.** У спалучэнні са злучнікам «чым» выкарыстоўваецца ў складаных сказах з даданымі супастаўляльнымі. *Чым бліжэй восень, тым карацейшыя дні. Чым госць радзейшы, тым мілейшы* (прыказка).

**ТЫМПА́Н**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Старадаўні ўдарны музычны інструмент, род медных талерак або невялікай літаўры.

**ТЫМПА́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Трохвугольнае поле франтона з жывапіснымі ці скульптурнымі ўпрыгожаннямі.

**ТЫН**, -у, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Агароджа з вертыкальных або папярочных жэрдак, пераплеценых прутамі лазы. ‖ *памянш.* **тыно́к**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.* ‖ *прым.* **ты́навы**, -ая, -ае.

**ТЫНК**, -у, *м.* Аддзелачны раствор з сумесі вяжучых рэчываў (вапны, цэменту, гліны, пяску і пад.), а таксама засохлы слой такога раствору. *Ад сцяны адваліўся т.*

**ТЫНКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *незак., што* і *без дап.* Пакрываць сцены або столь тынкам, каб зрабіць паверхню гладкай. *Т. хату.* ‖ *зак.* **атынкава́ць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны *і* **вы́тынкаваць**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны. ‖ *наз.* **тынко́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж. і* **тынкава́нне**, -я, *н.*

**ТЫНКО́ЎКА**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* тынкаваць. **2.** Слой тынку на паверхні будынкаў, на столі і сценах унутраных памяшканняў. ‖ *прым.* **тынкава́льны**, -ая, -ае. *Тынкавальныя работы.*

**ТЫНКО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па тынкоўцы. ‖ *ж.* **тынко́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ТЫНЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Павець, сцены якой зроблены з галінак, пераплеценых вакол гарызантальных або вертыкальных жэрдак.

**ТЫП**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Мадэль, узор, форма з прыкметамі, якім адпавядае пэўная група прадметаў, з'яў. *Трактар новага тыпу. Т. гаспадаркі.* **2.** -у. Вышэйшы падраздзел у сістэматызацыі раслін і жывёл, які аб'ядноўвае родныя класы (спец.). *Т. членістаногіх.* **3.** -у. Характэрны фізічны склад, знешні выгляд чалавека, звязаны з яго этнічнай прыналежнасцю. *Славянскі т. твару.* **4.** -у. Катэгорыя людзей, аб'яднаных супольнасцю якіх-н. характэрных унутраных або знешніх рыс. *Т. літаратурнага героя.* **5.** -а. Асобны чалавек, індывідуум, які вылучаецца сярод іншых характэрнымі рысамі (звычайна адмоўнымі). *Гэты т. выдаваў сябе за журналіста.*

**ТЫПАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Які з'яўляецца тыпам, узорам, мадэллю для чаго-н. *Школа пабудавана па тыпавым праекце.* **2.** Які адпавядае пэўнаму тыпу, узору, мадэлі; стандартны. *Трохпавярховы т. будынак.*

**ТЫПАГРАВЮ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -вю́р, *ж.* Гравюра, узноўленая друкарскім спосабам.

**ТЫПА́Ж**, -у, *м.* **1.** Сукупнасць тыпаў, узораў, мадэлей якіх-н. дэталей, вырабаў. *Т. самалётаў.* **2.** Сукупнасць прыкмет, характэрных для якога-н. грамадскага разраду, тыпу людзей. *Нацыянальны т.* **3.** Акцёр з яркай характэрнай знешнасцю, які падыходзіць па сваіх знешніх дадзеных для пэўнай ролі. *Т. узяты з жыцця.* ‖ *прым.* **тыпа́жны**, -ая, -ае (да 3 знач.).

**ТЫПАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Класіфікацыя, якая ўяўляе сабой суадносіны паміж рознымі тыпамі прадметаў, з'яў унутры іх сістэмы ў цэлым. *Т. моў.* ‖ *прым.* **тыпалагі́чны**, -ая, -ае.

**ТЫПІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Спецыялізаваць, размеркаваць (размяркоўваць), класіфікаваць па тыпах (у 1 знач.). *Т. азёры. Т. будаўнічыя аб'екты.* **2.** Увасобіць (увасабляць) у тыпічных формах. *Т. факты.* ‖ *наз.* **тыпіза́цыя**, -і, *ж.*

**ТЫПІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *тыповы.* ‖ *наз.* **тыпі́чнасць**, -і, *ж.*

**ТЫПО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае асаблівасці, характэрныя для пэўнага тыпу прадметаў, з'яў, людзей і пад. *Тыповыя прыкметы дыфтэрыі.* **2.** Які часта сустракаецца; звычайны, характэрны для каго-, чаго-н. *Тыповая з'ява.* **3.** Які аб'ядноўвае індывідуальныя, своеасаблівыя рысы з прыкметамі і ўласцівасцямі, характэрнымі для шэрага з'яў і асоб. *Т. беларускі характар. Тыповыя вобразы баек.* ‖ *наз.* **тыпо́васць**, -і, *ж.*

**ТЫПО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі жук-караед цёмна-бурага колеру, які наносіць шкоду хвойным дрэвам.

**ТЫРА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ра́д, *ж.* Доўгая фраза, урывак прамовы, асобная шматслоўная рэпліка, якая гаворыцца звычайна прыўзнятым тонам.

**ТЫРА́Ж**[1], -у́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Розыгрыш выйгрышаў у пазыцы, латарэі. *Т. грашова-рэчавай латарэі.* **2.** Пагашэнне аблігацый пазыкі або іншых папер устаноўвай, якая іх выпусціла. *Аблігацыі выйшлі ў т.* ◊ **Выйсці ў тыраж** (разм.) — выйсці з ужытку, устарэць, стаць непрыгодным для выкарыстання. ‖ *прым.* **тыра́жны**, -ая, -ае. *Тыражная табліца.*

**ТЫРА́Ж**[2], -у́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Колькасць экзэмпляраў якога-н. друкаванага выдання аднаго выпуску. *Т. газеты павялічыўся ў тры разы.* ‖ *прым.* **тыра́жны**, -ая, -ае.

**ТЫРАЖАВА́ЦЬ**, -жу́ю, -жу́еш, -жу́е; -жу́й; -жава́ны; *зак.* і *незак., што* (спец.). **1.** Устанавіць (устанаўліваць) тыраж кнігі, газеты і пад. **2.** Рабіць неабходную колькасць копій (кінастужкі, пласцінкі і пад.). ‖ *наз.* **тыражава́нне**, -я, *н.*

**ТЫРА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Аднаасобны правіцель у Старажытнай Грэцыі, сярэдневяковай Італіі, які захапіў уладу сілай. **2.** Правіцель, улада якога заснавана на дэспатызме і гвалце. **3.** *перан.* Жорсткі, дэспатычны чалавек, які чыніць здзекі

над людзьмі, прычыняе мукі. ‖ *прым.* **тыра́нскі**, -ая, -ае.

**ТЫРА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., каго (што).* Мучыць каго-н., здзекавацца з каго-н. *Ён тыраніў нават сваіх родных.*

**ТЫРАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Жорсткі, дэспатычны, самаўпраўны.

**ТЫРАНІ́Я**, -і, *ж.* **1.** Праўленне, улада, заснаваная на самавольстве і дэспатызме. **2.** *перан.* Дэспатызм, жорсткасць у адносінах да каго-н.

**ТЫРА́НСТВА**, -а, *н.* **1.** Паводзіны, учынкі тырана (у 2 знач.). **2.** Дэспатызм, жорсткасць. *Мінуліся часы яго т.*

**ТЫРА́НСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* (разм.). Прыгнятаць, мучыць каго-н., быць тыранам (у 3 знач.). *Т. у сям'і.*

**ТЫ́РСА**, -ы, *ж.* Від кавылю.

**ТЫРЧА́ЦЬ**, -чу́, -чы́ш, -чы́ць; -чы́м, -чыце́, -ча́ць; -чы́; *незак.* Тое, што і *тарчаць.*

**ТЫ́СЯЧА**, -ы, *мн.* -ы, ты́сяч. **1.** *ліч. кольк.* Лік і колькасць 1000. *Т. рублёў.* **2.** *ж.* звычайна *мн.* Вельмі многа, вялікая колькасць. *На мітынг сабраліся тысячы людзей.* ‖ *парадк.* **ты́сячны**, -ая, -ае.

**ТЫСЯЧА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які змяшчае тысячу якіх-н. адзінак, напр.: *тысячаградусны, тысячакіламетровы, тысячарублёвы, тысячатонны, тысячагаловы.*

**ТЫСЯЧАГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* тысячагоддзе. **2.** Які праіснаваў тысячу гадоў. *Тысячагадовы Полацк.*

**ТЫСЯЧАГАЛО́СЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з тысячы, мноства галасоў; утвораны тысячай, мноствам галасоў. *Т. птушыны хор.*

**ТЫСЯЧАГО́ДДЗЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Прамежак часу ў тысячу гадоў. *Надыходзіць трэцяе т.* **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, што адбылася тысячу гадоў таму. ‖ *прым.* **тысячагадо́вы**, -ая, -ае.

**ТЫ́СЯЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* тысяча. **2.** Які складаецца з тысячы якіх-н. адзінак. *Т. мітынг.* **3.** Вартасцю ў тысячу рублёў або які ацэньваецца тысячамі. **4.** Які атрымліваецца пры дзяленні на тысячу. *Адна тысячная доля секунды.* **5.** *у знач. наз.* **ты́сячная**, -ай, *ж.* Тысячная частка чаго-н. *Адна тысячная.*

**ТЫТА́Н**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** (з вялікай літары). У старажытнагрэчаскай міфалогіі: волат, які ўступіў у барацьбу з багамі Алімпа. **2.** *перан.* Чалавек вялікага таленту, надзвычайнага розуму (высок.). *Т. навукі.*

**ТЫТА́Н**[2], -у, *м.* Хімічны элемент, серабрыста-белы цвёрды метал. ‖ *прым.* **тыта́навы**, -ая, -ае.

**ТЫТА́Н**[3], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікі кіпяцільнік асобай канструкцыі. *Т. ужо закіпеў.*

**ТЫТА́НІСТЫ**, -ая, -ае. Які мае ў сваім складзе тытан[2]. *Т. жалязняк.*

**ТЫТАНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае (высок.). **1.** Які вызначаецца вялікай фізічнай або духоўнай сілай, розумам, талентам; уласцівы тытану[1] (у 2 знач.). **2.** Вялікі па сіле, размаху; грандыёзны.

**ТЫ́ТУЛ**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Ганаровае радавое або дараванае дваранскае званне, якое падкрэслівае прывілеяванае становішча асобы. *Т. графа. Т. князя.* **2.** Званне, якое прысвойваецца каму-н. у гонар прызнання яго заслуг. *Т. чэмпіёна.*

**ТЫ́ТУЛ**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Загаловак кнігі, а таксама старонка, на якой надрукаваны загаловак, імя аўтара, год і месца выдання. *На адвароце тытула.* ‖ *прым.* **ты́тульны**, -ая, -ае. *Т. ліст.*

**ТЫТУЛАВА́ЦЬ**, -лу́ю, -лу́еш, -лу́е; -лу́й; -лава́ны; *зак.* і *незак., каго (што).* Назваць (называць) каго-н. у адпаведнасці з тытулам[1], званнем, чынам.

**ТЫТУЛЯ́РНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **тытулярны саветнік** — у царскай Расіі: грамадзянскі чын дзявятага класа.

**ТЫТУ́Н** *гл.* тытунь.

**ТЫТУНЕКУРЭ́ННЕ**, -я, *н.* Прыхільнасць да курэння тытуню.

**ТЫТУНЁВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* тытунь. **2.** Зеленавата-карычневы, колеру высушанага лісця тытуню.

**ТЫТУ́НЬ**, -ю *і* **ТЫТУ́Н**, -у́, *м.* **1.** Травяністая расліна сямейства паслёнавых, лісце якой утрымлівае нікацін. **2.** Высушанае і дробна нарэзанае або расцёртае лісце гэтай расліны, якое ўжываецца для курэння. ‖ *ласк.* **тытуне́ц**, -нцу́, *м.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **тытунёвы**, -ая, -ае.

**ТЫТУНЯВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па тытунёводстве.

**ТЫТУНЯВО́ДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне тытуню (у 1 знач.) у прамысловых мэтах. ‖ *прым.* **тытунявóдчы**, -ая, -ае.

**ТЫФ**, -у, *м.* Вострае інфекцыйнае захворванне, якое характарызуецца ліхаманкавым станам, інтаксікацыяй, парушэннем свядомасці. *Брушны т. Зваротны т. Сыпны т.* ‖ *прым.* **тыфо́зны**, -ая, -ае. *Т. хворы.*

**ТЫФЛАПЕДАГО́ГІКА**, -і, *ДМ* -гіцы, *ж.* Методыка навучання сляпых. ‖ *прым.* **тыфлапедагагі́чны**, -ая, -ае.

**ТЫЦКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Тое, што і *тыкацца*[1]. ‖ *зак.* **ты́цнуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся. ‖ *наз.* **ты́цканне**, -я, *н.*

**ТЫ́ЦКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Тое, што і *тыкаць*[1]. ◊ **Тыцкаць у нос** *каму (каго-што)* або *кім-чым* (разм., неадабр.) — непачціва папікаць, папракаць каго-н. ‖ *наз.* **ты́цканне**, -я, *н.*

**ТЫ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** Шост, які ставіцца ў полі, на снезе для абазначэння межаў зямельных участкаў, дарогі, і пад. **2.** Шост, які выкарыстоўваецца як падпорка для павойных раслін. ‖ *прым.* **тычкавы́**, -а́я, -о́е (разм.).

**ТЫЧКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *незак., што.* Расстаўляць тычкі (у 1 знач.) пры геадэзічных работах. *Т. дарогу.* ‖ *зак.* **атычкава́ць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны. ‖ *наз.* **тычкава́нне**, -я, *н.*

**ТЫЧЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -чы́н, *ж.* Вялікая палка; шост. ‖ *памянш.* **тычы́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**ТЫЧЫ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* тычына. **2.** Мужчынскі орган размнажэння ў кветак, які змяшчае пылок (спец.). ‖ *прым.* **тычы́нкавы**, -ая, -ае.

**ТЫ́ЧЫЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -чыцца; *незак., каго-чаго.* Мець адносіны, дачыненне да каго-, чаго-н. *Гэта яго не тычыцца.*

**ТЫ́ШЧЫЦЦА**, -чуся, -чышся, -чыцца; *незак.* (разм.). Прабірацца з цяжкасцю; лезці куды-н. напралом, цяснуцца. *Куды ён тышчыцца?*

**ТЫЯ́РА**, -ы, *мн.* -ы, тыя́р, *ж.* **1.** Галаўны ўбор усходніх цароў у старажытнасці. **2.** Галаўны ўбор Рымскага Папы.

**ТЭАГО́НІЯ**, -і, *ж.* Міфы аб паходжанні і радаслоўнай багоў.

**ТЭАДАЛІ́Т**, -а, *М* -лі́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Геадэзічны і астранамічны інструмент для вымярэння гарызантальных і вертыкальных вуглоў. ‖ *прым.* **тэадалі́тны**, -ая, -ае.

**ТЭАКРА́ТЫЯ**, -і, *ж.* Форма кіравання, пры якой палітычная ўлада належыць духавенству. ‖ *прым.* **тэакраты́чны**, -ая, -ае.

**ТЭАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Тое, што і *багаслоўе.* ‖ *прым.* **тэалагі́чны**, -ая, -ае.

**ТЭАРЭ́МА**, -ы, *мн.* -ы, -рэ́м, *ж.* Матэматычнае палажэнне, правільнасць якога ўстанаўліваецца доказам.

**ТЭАРЭТЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *незак.* Займацца тэарэтычнымі пытаннямі, абстрактна разважаць на тэарэтычныя тэмы. ‖ *наз.* **тэарэтызава́нне**, -я, *н.*

**ТЭАРЭ́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які займаецца распрацоўкай тэарэтычных пытанняў у якой-н. галіне ведаў. *Фізік-т.* **2.** Чалавек, які любіць абстрактна разважаць.

**ТЭАРЭТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* тэорыя. **2.** Які мае адносіны да тэорыі, заснаваны на тэорыі. *Т. семінар.* ‖ *наз.* **тэарэты́чнасць**, -і, *ж.*

**ТЭАСО́Ф**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік, паслядоўнік тэасофіі. ‖ *ж.* **тэасо́фка**, -і, *ДМ* -фцы, *мн.* -і, -фак.

**ТЭАСО́ФІЯ**, -і, *ж.* Рэлігійна-містычнае вучэнне аб яднанні чалавечай душы з Богам, пра непасрэдныя зносіны з тым светам. ‖ *прым.* **тэасо́фскі**, -ая, -ае *і* **тэасафі́чны**, -ая, -ае.

**ТЭА́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Род мастацтва, у якім жыццё адлюстроўваецца праз драматычнае дзеянне на сцэне. *Музычны т. Захапляцца тэатрам.* **2.** Установа, якая мае пэўны склад артыстаў і ставіць спектаклі, а таксама памяшканне, дзе на сцэне паказваюцца драматычныя творы. *Калектыў тэатра. Працаваць у тэатры.* **3.** *перан.* Месца, дзе разгортваюцца, адбываюцца якія-н. значныя падзеі. *Т. ваенных дзеянняў.* **4.** Сукупнасць драматычных твораў якога-н. пісьменніка або літаратурнай школы. *Т. Шэкспіра.* ○ **Акадэмічны**

**тэатр** — ганаровая назва, якая прысвойваецца ўзорным дзяржаўным тэатрам. || *прым.* **тэатра́льны**, -ая, -ае (у 1 і 2 знач.).

**ТЭАТРАЗНА́ВЕЦ**, -на́ўца, *мн.* -на́ўцы, -на́ўцаў, *м.* Спецыяліст у галіне тэатразнаўства.

**ТЭАТРАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Галіна мастацтвазнаўства, прысвечаная вывучэнню тэатра, яго тэорыі, гісторыі і ролі ў грамадскім жыцці. || *прым.* **тэатразна́ўчы**, -ая, -ае.

**ТЭАТРА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аматар тэатра; часты наведвальнік тэатра. || *ж.* **тэатра́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак.

**ТЭАТРАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Прыстасаваць (прыстасоўваць) для тэатра, для паказу ў тэатры. *Т. раман.* || *наз.* **тэатраліза́цыя**, -і, *ж.*

**ТЭАТРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* тэатр. **2.** *перан.* Ненатуральны, паказны, разлічаны на знешні эфект. *Т. жэст.* || *наз.* **тэатра́льнасць**, -і, *ж.*

**ТЭ́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, тэз *і* -аў, *ж.* (спец.). Тое, што і *тэзіс* (у 1 знач.).

**ТЭЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што* Скласці (складаць) тэзісы да артыкула, даклада і пад.

**ТЭЗАЎРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *зак.* і *незак., што* (спец.). Зрабіць (рабіць) тэзаўрацыю.

**ТЭЗАЎРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Накапленне золата (зліткаў, манет) як скарбу прыватнымі асобамі.

**ТЭЗА́ЎРУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Слоўнік мовы, які мае на мэце поўнае адлюстраванне ўсёй яе лексікі. **2.** Слоўнік або звод дадзеных, які поўнасцю ахоплівае тэрміны, паняцці якой-н. спецыяльнай сферы. || *прым.* **тэза́ўрусны**, -ая, -ае.

**ТЭ́ЗІС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У логіцы: палажэнне, якое патрабуе абгрунтавання. **2.** звычайна *мн.* Палажэнні, якія коратка перадаюць ідэю, асноўныя думкі сачынення, даклада і пад. *Тэзісы даклада.* || *прым.* **тэ́зісны**, -ая, -ае. *У тэзіснай форме.*

**ТЭІ́ЗМ**, -у, *м.* Рэлігійна-філасофскі светапогляд, згодна з якім Бог стварыў свет і дзейнічае ў ім. || *прым.* **тэісты́чны**, -ая, -ае.

**ТЭІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік тэізму. || *ж.* **тэі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **тэісты́чны**, -ая, -ае.

**ТЭКІ́НЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Адна з буйных племянных груп у складзе туркменскага народа. || *ж.* **тэкі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **тэкі́нскі**, -ая, -ае.

**ТЭКСТ**, -у, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Надрукаванае ці напісанае звязанае маўленне, якое можна ўзнавіць. *Т. апавядання.* **2.** Асноўны матэрыял якога-н. твора, дакумента і пад. ў адрозненне ад заўваг, каментарыяў, ілюстрацый да яго. *Зноскі занялі больш месца, чым сам т.* **3.** Словы, на якія напісана музыка. *Т. песні.* **4.** Шрыфт буйнога памеру — каля 8 мм (спец.). || *прым.* **тэ́ксставы**, -ая, -ае.

**ТЭКСТАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Галіна філалогіі, якая займаецца вывучэннем, праверкай і навуковым выданнем тэкстаў літаратурных і іншых твораў. || *прым.* **тэксталагі́чны**, -ая, -ае.

**ТЭКСТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне тэксталогіі.

**ТЭКСТО́ЎКА**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *мн.* -і, -то́вак, *ж.* (разм.). Кароткі тлумачальны подпіс пад малюнкам, здымкам, карыкатурай. *Ён умеў пісаць з'едлівыя тэкстоўкі.*

**ТЭКСТУА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які дакладна, літаральна перадае тэкст, даслоўны. *Тэкстуальнае супадзенне.* || *наз.* **тэкстуа́льнасць**, -і, *ж.*

**ТЭКСТУ́РА**, -ы, *ж.* (спец.). Асаблівасці будовы цвёрдага рэчыва, абумоўленыя характарам размяшчэння яго састаўных частак (крышталёў, зерняў, слаёў і пад.). *Т. горных парод.*

**ТЭКСТЫ́ЛЬ**, -ю, *м., зб.* Агульная назва ткацкіх вырабаў з натуральных і штучных валокнаў, а таксама пража і сыравіна для іх. || *прым.* **тэксты́льны**, -ая, -ае. *Тэкстыльная прамысловасць.*

**ТЭКСТЫ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік тэкстыльнай прамысловасці. || *ж.* **тэксты́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ТЭКТО́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* (спец.). **1.** Раздзел геалогіі, які вывучае структуру зямной кары, яе рух і дэфармацыі. **2.** У архітэктуры: тое, што і *архітэктоніка.* || *прым.* **тэктані́чны**, -ая, -ае.

**ТЭЛЕ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) тэлевізійны, напр.: *тэлевяшчанне, тэлеантэна, тэлевежа, тэлемастацтва, тэленарыс, тэлеперадача, тэлерэклама, тэлерэпартаж, тэлеўрок;* 2) які адбываецца, рэгулюецца з далёкай адлегласці, напр.: *тэлевымярэнне, тэлекіраванне, тэлеметрыя, тэлемеханіка, тэлемеханічны, тэлесігналізацыя.*

**ТЭЛЕАБ'ЕКТЫ́Ў**, -ы́ва, *мн.* -ы́вы, -ы́ваў, *м.* (спец.). Аб'ектыў фота- або кінаапарата для здымкі аддаленых аб'ектаў у буйным маштабе.

**ТЭЛЕАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Рэлігійна-ідэалістычнае вучэнне, паводле якога ўсё ў свеце ажыццяўляецца ў адпаведнасці з папярэдне вызначанай Богам мэтай. || *прым.* **тэлеалагі́чны**, -ая, -ае.

**ТЭЛЕБА́ЧАННЕ**, -я, *н.* **1.** Перадача і прыём на экран відарысаў рухомых і нерухомых аб'ектаў на адлегласці сродкамі электра- і радыёсувязі. *Вяшчальнае т. Лічбавае т.* **2.** Галіна радыётэхнікі, якая даследуе і распрацоўвае тэхнічныя спосабы перадачы відарысаў на адлегласць. **3.** Установа, якая ажыццяўляе вяшчальныя перадачы. *Супрацоўнік тэлебачання.*

**ТЭЛЕВІ́ЗАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апарат для прыёму тэлевізійных перадач і іх гукавога суправаджэння. || *прым.* **тэлеві́зарны**, -ая, -ае.

**ТЭЛЕВІЗІ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які перадаецца ці прымаецца з дапамогай тэлебачання (у 1 знач.). *Т. фільм. Тэлевізійная перадача.* **2.** Прызначаны для перадачы або прыёму відарысаў з дапамогай сродкаў тэлебачання. *Тэлевізійная антэна.*

**ТЭЛЕВЯШЧА́ННЕ**, -я, *н.* Адзін з асноўных сродкаў масавай інфармацыі: перадача паведамленняў і іншых інфармацыйных праграм па тэлебачанні.

**ТЭЛЕГЛЯДА́Ч**, -гледача́, *мн.* -гледачы́, -гледачо́ў, *м.* Той, хто глядзіць тэлевізійныя перадачы. || *ж.* **тэлегляда́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ТЭЛЕГРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́м, *ж.* Паведамленне, якое перадаецца па тэлеграфе (у 1 знач.), а таксама бланк з такім паведамленнем. *Віншавальная т.* || *прым.* **тэлегра́мны**, -ая, -ае.

**ТЭЛЕГРА́Ф**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Від сувязі, які забяспечвае хуткую перадачу паведамленняў на далёкую адлегласць пры дапамозе электрычных або радыёсігналаў. **2.** Установа, якая прымае і адпраўляе такія паведамленні, а таксама будынак, дзе знаходзіцца такая ўстанова. *Працаваць на тэлеграфе. Пошта і т.* **3.** Апарат для перадачы і прыёму тэлеграм. || *прым.* **тэлегра́фны**, -ая, -ае. *Тэлеграфныя слупы. Т. стыль пісьма* (перан.: вельмі сціслы, лаканічны).

**ТЭЛЕГРАФАВА́ЦЬ**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны; *зак.* і *незак., што* і *аб чым.* Паведаміць (паведамляць) па тэлеграфе. *Т. аб выездзе.* || *наз.* **тэлеграфава́нне**, -я, *н.*

**ТЭЛЕГРАФІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Работнік тэлеграфа (у 2 знач.), які прымае і перадае тэлеграмы. || *ж.* **тэлеграфі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ТЭЛЕГРАФІ́Я**, -і, *ж.* Навукова-тэхнічная дысцыпліна, якая вывучае тэлеграфную сувязь.

**ТЭЛЕКАНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Электронны сродак масавай інфармацыі, які ўяўляе сабой сукупнасць тэлевізійных праграм, сфарміраваных у адпаведнасці з сеткай вяшчання для наступнага распаўсюджання. *Спадарожнікавы т.*

**ТЭ́ЛЕКС**, -а, *м.* **1.** Міжнародная сетка абаненцкага тэлеграфавання. *Звязацца па тэлексе.* **2.** Апарат для такога тэлеграфавання. **3.** Тэкст паведамлення, атрыманы з дапамогай такога апарата. *Атрыманы тэрміновы т.* || *прым.* **тэ́лексны**, -ая, -ае.

**ТЭЛЕМО́СТ**, -мо́ста, *М* -сце, *мн.* -масты́, -мастоў, *м.* Тэлевізійная сувязь на далёкія адлегласці пры дапамозе касмічных апаратаў. *Касмічны т.*

**ТЭЛЕПА́ТЫЯ**, -і, *ж.* Парапсіхалагічная з'ява перадачы думак і пачуццяў на адлегласці без дапамогі органаў пачуццяў. || *прым.* **тэлепаты́чны**, -ая, -ае.

**ТЭЛЕСКО́П**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Астранамічны аптычны прыбор для назірання за нябеснымі целамі. || *прым.* **тэлеско́пны**, -ая, -ае.

**ТЭЛЕСКО́П**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Парода акварыумных залатых рыбак.

**ТЭЛЕСТА́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Комплекс збудаванняў і прыстасаванняў

для падрыхтоўкі праграм тэлевяшчання і іх перадачы.

**ТЭЛЕСТУ́ДЫЯ**, -і, *мн.* -і, -дый, *ж.* Спецыяльна абсталяванае памяшканне, з якога вядуцца трансляцыі тэлевізійных праграм.

**ТЭЛЕТА́ЙП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тэлеграфны апарат з клавіятурай як у друкарскай машынцы для перадачы тэкставых паведамленняў. ‖ *прым.* **тэлета́йпны**, -ая, -ае.

**ТЭЛЕТАЙПІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто працуе на тэлетайпе. ‖ *ж.* **тэлетайпі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ТЭЛЕФА́КС**, -а, *м.* Сетка сувязі для перадачы графічнай інфармацыі і дакументацыі ў арыгінальным выглядзе пры дапамозе факсімільных апаратаў.

**ТЭЛЕФАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак.* і *незак.* Паведамляць па тэлефоне, а таксама званіць па тэлефоне. ‖ *зак.* **патэлефанава́ць**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й.

**ТЭЛЕФАНАГРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́м, *ж.* Службовае афіцыйнае паведамленне, якое перадаецца і прымаецца па тэлефоне.

**ТЭЛЕФАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Правесці (праводзіць) тэлефанізацыю, забяспечыць (забяспечваць) тэлефонам. ‖ *наз.* **тэлефаніза́цыя**, -і, *ж.* *Т. новага мікрараёна.*

**ТЭЛЕФАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па тэлефаніі. **2.** Работнік тэлефоннай станцыі. ‖ *ж.* **тэлефані́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ТЭЛЕФАНІ́Я**, -і, *ж.* Галіна навукі і тэхнікі, якая вывучае і распрацоўвае прынцыпы пабудовы сістэм тэлефоннай сувязі і неабходную для яе апаратуру.

**ТЭЛЕФІ́ЛЬМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Фільм, створаны для паказу па тэлебачанні.

**ТЭЛЕФО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыстасаванне для перадачы і прыёму гуку на адлегласці пры дапамозе электрычнай энергіі. *Гаварыць па тэлефоне.* **2.** Апарат для размовы такім спосабам. *Аддаць т. у рамонт.* **3.** Нумар такога апарата. *Запісаць т. знаёмых.* ‖ *прым.* **тэлефо́нны**, -ая, -ае. *Тэлефонная станцыя.*

**ТЭЛЕЦЭ́НТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Складаны вытворчы комплекс, які стварае тэлевізійныя праграмы і распаўсюджвае іх.

**ТЭ́МА**, -ы, *мн.* -ы, тэм, *ж.* **1.** Прадмет, асноўны змест разважання, выкладу думкі, творчасці. *Перайсці да другой тэмы. Т. даклада.* **2.** Галоўны, асноўны матыў музычнага твора. *Т. з варыяцыямі.*

**ТЭМА́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Сукупнасць, кола тэм. *Гістарычная т.* ‖ *прым.* **тэматы́чны**, -ая, -ае.

**ТЭМАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* тэматыка. **2.** Прысвечаны якой-н. адной тэме. *Тэматычная выстаўка кніг.*

**ТЭМБР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Характэрная афарбоўка гуку (голасу, інструмента), якая надаецца яму абертонамі, прыгукамі. *Прыемны т. голасу.* ‖ *прым.* **тэ́мбравы**, -ая, -ае.

**ТЭМП**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Ступень хуткасці ў выкананні музычнага твора, а таксама ў рухах, выкананні чаго-н., чытанні і пад. **2.** Хуткасць ажыццяўлення, выканання або інтэнсіўнасці развіцця чаго-н. *Тэмпы будаўніцтва.* ◊ **У тэмпе** (разм.) — хутка, энергічна. ‖ *прым.* **тэ́мпавы**, -ая, -ае.

**ТЭ́МПЕРА**, -ы, *ж.* **1.** Фарбы, расцёртыя на яечным жаўтку або на сумесі клеявога раствору з алеем. **2.** Карціна, выкананая такімі фарбамі і асобымі тэхнічнымі прыёмамі. ‖ *прым.* **тэ́мперны**, -ая, -ае. *Т. жывапіс.*

**ТЭМПЕРАВА́НЫ**, -ая, -ае (спец.). З дакладна вызначанай колькасцю тонаў і іх суадносінамі па вышыні. *Т. інструмент. Т. музычны лад.*

**ТЭМПЕРА́МЕНТ**, -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Характарыстыка індывіда з боку дынамічных асаблівасцей яго псіхічнай дзейнасці (тэмпу, рытму, інтэнсіўнасці псіхічных працэсаў), якія ўтвараюць пэўны псіхалагічны тып. *Меланхалічны, халерычны т.* **2.** Жыццёвая энергія, здольнасць да ўнутранага ўздыму. *Чалавек з тэмпераментам.*

**ТЭМПЕРА́МЕНТНЫ**, -ая, -ае. Жывы, энергічны, якому ўласцівы палкі тэмперамент. *Т. чалавек. Тэмпераментнае выступленне.* ‖ *наз.* **тэмпера́ментнасць**, -і, *ж.*

**ТЭМПЕРАТУ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Ступень нагрэтасці якога-н. цела, рэчыва; цеплавая характарыстыка. *Т. вады. Т. паветра.* **2.** Ступень цеплыні чалавечага цела як паказчык стану здароўя. *Памераць тэмпературу ў дзіцяці.* **3.** Павышаная цеплыня цела; гарачка (разм.). *У хворага т.* ‖ *прым.* **тэмперату́рны**, -ая, -ае.

**ТЭМПЕРАТУ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* (разм.). Хварэць, маючы высокую тэмпературу. *Дзіця т.*

**ТЭ́НАР**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Самы высокі мужчынскі голас. *Лірычны т.* **2.** -а. Спявак з такім голасам. ‖ *памянш.* **тэнаро́к**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **тэнаро́вы**, -ая, -ае. *Тэнаровая партыя.*

**ТЭ́НДАР**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльны вагон для паліва, вады і пад., счэплены з паравозам, або задняя частка паравоза, прыстасаваная для захоўвання паліва і вады. ‖ *прым.* **тэ́ндарны**, -ая, -ае.

**ТЭ́НДАР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Камерцыйны конкурс, таргі і пад. па загадзя пададзеных заяўках ад удзельнікаў. ‖ *прым.* **тэ́ндарны**, -ая, -ае.

**ТЭНДЭНЦЫ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які праводзіць пэўную тэндэнцыю (у 1 знач.). **2.** Прадузяты, неаб'ектыўны. ‖ *наз.* **тэндэнцы́йнасць**, -і, *ж.*

**ТЭНДЭ́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Напрамак развіцця культуры, грамадства, эканомікі і пад. *Дэмакратычныя тэндэнцыі.* **2.** Асноўная думка, ідэя, накіраванасць якога-н. твора, выказвання і пад. **3.** Прадузятая аднабаковая думка, якая навязваецца чытачу, гледачу, слухачу.

**ТЭ́НЗАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У матэматыцы: велічыня, якая валодае кампанентамі ў кожнай з мноства сістэм каардынат, прычым кампаненты пераўтвараюцца па пэўным законе пры пераходзе ад адной сістэмы каардынат да другой. ‖ *прым.* **тэ́нзарны**, -ая, -ае. *Тэнзарнае вылічэнне.*

**ТЭ́НІС**, -а, *м.* Спартыўная гульня з ракеткамі і мячыкам, які перакідваецца цераз сетку, што раздзяляе пляцоўку-корт. ‖ *прым.* **тэ́нісны**, -ая, -ае.

**ТЭНІСІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ігрок у тэніс. ‖ *ж.* **тэнісі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ТЭ́НІСКА**, -і, *ДМ* -нісцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Сарочка з кароткімі рукавамі, звычайна трыкатажная.

**ТЭНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Парусінавая стрэшка, якая засцерагае ад сонца, дажджу.

**ТЭО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне тэалогіі; багаслоў.

**ТЭО́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* **1.** Вучэнне, сістэма навуковых прынцыпаў, ідэй, якія абагульняюць практычны вопыт і адлюстроўваюць заканамернасці развіцця прыроды, грамадства, мыслення. *Т. пазнання.* **2.** Сукупнасць абагульненых палажэнняў, што ўтвараюць навуку або раздзел якой-н. навукі, а таксама сукупнасць правіл у галіне якога-н. майстэрства. *Лінгвістычная т. Т. шахматнай гульні.* **3.** Думка, погляды, меркаванні аб чым-н., якія склаліся ў каго-н. (разм.). *У яго свая т. наконт гэтага пытання.* ‖ *прым.* **тэарэты́чны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Тэарэтычнае мовазнаўства.*

**ТЭ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Ісці, робячы частыя крокі. **2.** Ісці, хадзіць наогул. *Нехта тэпае па двары.* **3.** Пра дзяцей: пачынаць хадзіць, хадзіць няўпэўнена. *Хлопчык ужо пачынае т.* ‖ *наз.* **тэ́панне**, -я, *н.*

**ТЭ́ПЦІ**, -яў, *адз.* тэ́пац, -пця, *м.* (разм.). Від лёгкага хатняга абутку, часцей дзіцячага. ‖ *памянш.* **тэ́пцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ТЭРАКО́ТА**, -ы, *ДМ* -ко́це, *ж.* Абпаленыя непаліваныя вырабы з высакаякаснай каляровай (жоўтай або чырвонай) ганчарнай гліны. ‖ *прым.* **тэрако́тавы**, -ая, -ае. *Т. колер* (чырванавата-карычневы).

**ТЭРАПЕ́ЎТ**, -а, *М* -е́ўце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Урач — спецыяліст па тэрапіі.

**ТЭРАПІ́Я**, -і, *ж.* **1.** Раздзел медыцыны, прысвечаны вывучэнню метадаў распазнавання ўнутраных хвароб, іх лячэнню і прафілактыцы. **2.** Лячэнне ўнутраных хвароб лекамі, сывараткамі, электрычным токам і іншымі нехірургічнымі метадамі. ‖ *прым.* **тэрапеўты́чны**, -ая, -ае.

**ТЭРАРЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* **1.** Застрашыць (страшыць) тэрорам, расправай, забойствам. **2.** *перан.* Прывесці (прыводзіць) у страх, запалохаць (запалохваць)

чым-н. (разм.). *Т. сваімі паводзінамі.* || *наз.* **тэрарызава́нне**, -я, *н.*

**ТЭРАРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Палітыка, заснаваная на сістэматычным прымяненні тэрору (у 1 знач.). || *прым.* **тэрарысты́чны**, -ая, -ае.

**ТЭРА́РЫЙ**, -я, *мн.* -і, -яў *і* **ТЭРА́РЫУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльнае памяшканне для ўтрымання земнаводных і паўзуноў.

**ТЭРАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік або ўдзельнік актаў індывідуальнага тэрору. || *ж.* **тэрары́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **тэрары́сцкі**, -ая, -ае.

**ТЭРАРЫСТЫ́ЧНЫ** *гл.* тэрарызм, тэрор.

**ТЭРА́СА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́с, *ж.* **1.** Летняя адкрытая прыбудова да дома. *Крытая т. Зашклёная т.* **2.** Гарызантальны ўступ[1] зямной паверхні на схілах у выглядзе пляцоўкі. *Бераг спускаецца тэрасамі.*

**ТЭР'Е́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Агульная назва парод сабак, якія выкарыстоўваюцца для палявання на невялікіх жывёлін, што жывуць у норах, і для барацьбы з грызунамі.

**ТЭРМА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. тэрмічны, цеплавы, напр.: *тэрмабаракамера, тэрмаграма, тэрмарэгуляванне, тэрмаактыўны, тэрмаакумуляцыя, тэрмагенератар, тэрмаграфія, тэрматэрапія, тэрмахімія, тэрмабарометр, тэрмазварванне, тэрмасклейванне.*

**ТЭРМАДЫНА́МІКА**, -і, *ДМ* -міцы, *ж.* Раздзел фізікі, які вывучае законы цеплавога руху і яго ўплыў на фізічныя ўласцівасці цел. || *прым.* **тэрмадынамі́чны**, -ая, -ае.

**ТЭ́РМАС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяльная пасудзіна для захоўвання змесціва пры пастаяннай тэмпературы. *Кава ў тэрмасе.* || *прым.* **тэ́рмасны**, -ая, -ае. *Т. корак.*

**ТЭРМАСТА́Т**, -а, *М* -ста́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыбор для падтрымання пастаяннай тэмпературы. || *прым.* **тэрмаста́тны**, -ая, -ае.

**ТЭРМАЎСТО́ЙЛІВЫ**, -ая, -ае (спец.). Які вытрымлівае высокую тэмпературу. *Тэрмаўстойлівая пластмаса.* || *наз.* **тэрмаўсто́йлівасць**, -і, *ж.*

**ТЭРМАЯ́ДЗЕРНЫ**, -ая, -ае. Які адносіцца да рэакцый зліцця некаторых лёгкіх ядраў атама ў больш цяжкія пры звышвысокіх тэмпературах з вылучэннем велізарнай колькасці энергіі за вельмі кароткі прамежак часу. *Тэрмаядзерная рэакцыя.*

**ТЭ́РМІН**[1], -у, *м.* **1.** Пэўны адрэзак часу, адведзены для чаго-н. *Закончыць работу ў месячны т.* **2.** Вызначаны час, дата, да наступлення якой або пасля якой павінна што-н. адбыцца, закончыцца і пад. *Набліжаўся т. уступных экзаменаў.*

**ТЭ́РМІН**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Слова або словазлучэнне, якое дакладна абазначае пэўнае паняцце якой-н. спецыяльнай галіны навукі, тэхнікі, мастацтва і пад. *Тэхнічны т. Мовазнаўчы т.*

**ТЭРМІНА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** У транспартных сетках: месца пасадкі або высадкі пасажыраў, пагрузкі або выгрузкі грузаў і іх накаплення. *Мытны т. Т. аэрапорта.* **2.** Канцавая частка сістэмы, якая забяспечвае сувязь сістэмы з навакольным асяроддзем. *Плацежны т. Купіць білет праз т.* **3.** Прыстасаванне ў ЭВМ, прызначанае для ўводу і вываду інфармацыі. *Камп'ютарны т.* || *прым.* **тэрміна́льны**, -ая, -ае.

**ТЭРМІНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Сукупнасць, сістэма тэрмінаў якой-н. навукі, галіны тэхнікі, віду мастацтва. *Т. фізікі. Т. філасофіі. Мовазнаўчая т.* || *прым.* **тэрміналагі́чны**, -ая, -ае.

**ТЭРМІНО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які патрабуе неадкладнага, хуткага выканання, вырашэння. *Т. заказ.* **2.** Разлічаны на пэўны тэрмін. *Т. ўклад.* **3.** Які адбываецца ў вызначаныя законам для чаго-н. тэрміны. *Тэрміновая ваенная служба.* || *наз.* **тэрміно́васць**, -і, *ж.*

**ТЭРМІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па тэрмічнай апрацоўцы металаў.

**ТЭРМІ́Т**[1], -у, *М* -міце, *м.* (спец.). Парашкападобная сумесь алюмінію ці магнію з вокісамі некаторых металаў, якая пры гарэнні дае вельмі высокую тэмпературу. || *прым.* **тэрмі́тны**, -ая, -ае.

**ТЭРМІ́Т**[2], -а, *М* -міце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Насякомае гарачых краін, якое жыве вялікімі згуртаваннямі і з'яўляецца шкоднікам драўніны.

**ТЭРМІ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Гняздо тэрмітаў[2].

**ТЭРМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з выкарыстаннем цеплавой энергіі; цеплавы. *Тэрмічная апрацоўка металаў.*

**ТЭРМО́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння тэмпературы.

**ТЭРО́Р**, -у, *м.* **1.** Палітыка запалохвання, расправы з палітычнымі праціўнікамі шляхам насілля аж да фізічнага знішчэння. *Палітычны т.* **2.** *перан.* Бязлітасны, жорсткі ўціск, насілле. *Т. самадура.* || *прым.* **тэрарысты́чны**, -ая, -ае.

**ТЭРПЕНЦІ́Н**, -у, *м.* Смалістае рэчыва, што выдзяляецца пры надрэзе хваёвых дрэў; жывіца (у 1 знач.). || *прым.* **тэрпенці́навы**, -ая, -ае.

**ТЭ́РЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* У музыцы: трэцяя ступень гамы, а таксама інтэрвал (у 2 знач.), які ахоплівае тры ступені гукарада. ○ **Вялікая тэрцыя** — інтэрвал у тры ступені, які ўтрымлівае два тоны. **Малая тэрцыя** — інтэрвал у тры ступені, які ўтрымлівае паўтара тону. || *прым.* **тэ́рцыевы**, -ая, -ае.

**ТЭРЦЭ́Т**, -а, *М* -цэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Музычны твор для трох выканаўцаў, трох галасоў; трыа. **2.** Страфа з трох вершаваных радкоў; трохрадкоўе.

**ТЭРЫКО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Конусападобны насып пустой пароды каля шахты. *Салігорскія тэрыконы.*

**ТЭРЫТО́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* Зямельная прастора з пэўнымі межамі. *Т. Беларусі. Т. завода.* || *прым.* **тэрытарыя́льны**, -ая, -ае.

**ТЭРЭНКУ́Р**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Дакладна дазіраваная ў часе і адлегласці лячэбная хадзьба на курортах і ў санаторыях. **2.** -а. Спецыяльна прыстасаваная дарожка для такой хадзьбы.

**ТЭСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Стандартнае заданне, якое прымяняецца для вызначэння разумовых здольнасцей, схільнасцей, ведаў, уменняў чалавека і іншых бакоў яго асобы. *Т. на інтэлектуальнае развіццё. Т. ацэнкі матэматычных здольнасцей.* **2.** Пробныя ўздзеянні на арганізм для вывучэння розных фізіялагічных працэсаў у ім, а таксама для вызначэння функцыянальнага стану асобных органаў, тканак і арганізма ў цэлым. *Зрокавы, слыхавы т. Т. на наяўнасць цяжарнасці.* **3.** У інфарматыцы: задача з вядомым рашэннем, прызначаная для праверкі правільнасці работы ЭВМ і яе праграмнага забеспячэння. *Т. для праверкі памяці ЭВМ.* || *прым.* **тэ́ставы**, -ая, -ае.

**ТЭСЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак.* Правяраць, вызначаць што-н. пры дапамозе тэста. || *зак.* **пратэсці́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны. || *наз.* **тэсці́раванне**, -я, *н.*

**ТЭТРАЛО́ГІЯ**, -і, *мн.* -і, -гій, *ж.* Чатыры літаратурныя або музычна-драматычныя творы, аб'яднаныя агульнай ідэяй і пераемнасцю сюжэта. || *прым.* **тэтралагі́чны**, -ая, -ае.

**ТЭТРА́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У антычным вершаскладанні: чатырохдольны верш. || *прым.* **тэтраметры́чны**, -ая, -ае.

**ТЭЎТО́НЫ**, -аў, *адз.* -то́н, -а, *м.* Агульная назва старажытнагерманскіх плямёнаў. || *прым.* **тэўто́нскі**, -ая, -ае.

**ТЭ́ФТЭЛІ** *і* **ТЭФТЭ́ЛІ**, -яў. Ежа з мяснога фаршу ў выглядзе шарыкаў.

**ТЭХМІ́НІМУМ**, -у, *м.* Сукупнасць ведаў, вопыту ў якой-н. галіне тэхнікі, неабходных для авалодання якой-н. прафесіяй. *Здаць т.*

**ТЭХНАКРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыхільнік тэхнакратыі (у 1 знач.). **2.** Прадстаўнік тэхнакратыі (у 2 знач.).

**ТЭХНАКРА́ТЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Напрамак грамадскай думкі, згодна з якім улада павінна належаць навуковай тэхнічнай інтэлігенцыі. **2.** *зб.* Высокакваліфікаваныя спецыялісты ў галіне тэхнікі, якія ўдзельнічаюць у кіраванні вытворчасцю і ажыццяўленні ўрадавай эканамічнай палітыкі. || *прым.* **тэхнакраты́чны**, -ая, -ае.

**ТЭХНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Сукупнасць вытворчых метадаў і працэсаў у пэўнай галіне вытворчасці, а таксама навуковае апісанне спосабаў вытворчасці. *Т. апрацоўкі*

*металаў.* ‖ *прым.* **тэхналагі́чны**, -ая, -ае. *Т. працэс.*

**ТЭ́ХНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст з сярэдняй тэхнічнай адукацыяй. **2.** Чалавек, які працуе ў галіне тэхнікі, тэхнічных навук.

**ТЭ́ХНІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* **1.** Сукупнасць сродкаў працы, ведаў і дзейнасці, што служаць для стварэння матэрыяльных каштоўнасцей. *Навука і т.* **2.** Сукупнасць прыёмаў і навыкаў, што выкарыстоўваюцца ў якой-н. галіне дзейнасці або мастацтве. *Авалодаць тэхнікай. Музычная т. Т. справаводства.* **3.** *зб.* Машыны, розныя прылады той ці іншай галіны вытворчасці. *Рамонт тэхнікі. Ваенная т.* ‖ *прым.* **тэхні́чны**, -ая, -ае.

**ТЭ́ХНІКУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Сярэдняя тэхнічная навучальная ўстанова або наогул сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова. *Сельскагаспадарчы т. Гандлёвы т.* ‖ *прым.* **тэ́хнікумаўскі**, -ая, -ае (разм.).

**ТЭХНІЦЫ́ЗМ**, -у, *м.* Празмернае захапленне тэхнічным бокам якой-н. справы на шкоду яе сутнасці.

**ТЭХНІ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (разм.). **1.** Работніца, якая прыбірае памяшканне; прыбіральшчыца. **2.** Машына тэхнічнай дапамогі.

**ТЭХНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* тэхніка. **2.** Які мае адносіны да работы машын і механізмаў, звязаны з абслугоўваннем тэхнікі якой-н. вытворчасці. *Тэхнічная дапамога. Т. аддзел.* **3.** Які падлягае выкарыстанню або апрацоўцы ў прамысловасці. *Тэхнічная вада.* **4.** Які выконвае розныя дапаможныя работы ў якой-н. справе, не адказны. *Т. сакратар.* **5.** Які вызначаецца высокай тэхнікай, майстэрствам (у спорце, мастацтве). *Т. футбаліст.* ‖ *наз.* **тэхні́чнасць**, -і, *ж.* (да 5 знач.).

**ТЭХНО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па тэхналогіі ў якой-н. галіне вытворчасці.

**ТЭХРЭ́Д**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: тэхнічны рэдактар, работнік выдавецтва, які займаецца паліграфічным афармленнем выдання.



**У**[1], *прыназ.* **I.** *з В* і *М.* **1.** Ужыв. пры абазначэнні месца, напрамку куды-н. ці знаходжання дзе-н. каго-, чаго-н. *Пакласці рэчы ў куфар. Адзенне вісіць у шафе. Падаць заяву ў інстытут.* **2.** Ужыв. пры абазначэнні з'яў, якія ўяўляюць сабой галіну дзейнасці, стан чаго-н. *Збірацца ў паход. Быў у паходзе. Паглыбіцца ў роздум.* **3.** Ужыв. для ўказання на выгляд, форму чаго-н. *Расцерці ў парашок. Лякарства ў парашках. Цукар у кавалках. Пальцы ў чарніле.* **4.** Ужыв. пры ўказанні на знешні выгляд каго-, чаго-н., на абалонку, на адзенне. *Купацца ў плаўках. Загарнуць у абрус. Цукеркі ў абгортцы. Апрануцца ў новае паліто.* **5.** Ужыв. для ўказання колькасці якіх-н. адзінак, з якіх што-н. складаецца. *Даўжынёй у тры метры. П'еса ў трох дзеях.* **6.** Ужыв. пры абазначэнні моманту ці тэрміну. *У ноч з пятніцы на суботу. У наступным годзе.* **7.** Ужыв. пры абазначэнні прадметаў, з'яў, у адносінах да якіх што-н. адбываецца, назіраецца. *Недахопы ў рабоце. Розніца ў гадах.* **II.** *з В.* **1.** Ужыв. пры абазначэнні суадносін лікаў. *У два разы больш.* **2.** Дзеля, для, у якасці чаго-н. *Не ў крыўду кажучы. Сказаць у насмешку.* **3.** Ужыв. пры абазначэнні поўнага падабенства, тоеснасці з кім-н. *Уся ў бацьку.* **III.** *з М.* Ужыв. пры абазначэнні адлегласці ад чаго-н. *У трох кіламетрах ад горада працякае рэчка.* **IV.** *з Р* **1.** Ужыв. пры ўказанні на асоб, у асяроддзі якіх або ў межах дзейнасці, валодання, разумення якіх ці ў межах прыналежнасці якім што-н. адбываецца, маецца. *Шыць кажух у краўца. Гасціць у родных. Як у вас холадна! У яго спрыт у рабоце. Глядзі ў мяне!* (выраз пагрозы; разм.). **2.** Указвае на крыніцу атрымання, паходжання чаго-н. *Даведацца ў знаёмага. Купіць карову ў суседа.*

**У**[2], *выкл.* **1.** Выражае здзіўленне, здагадку, пазнаванне, папрок, пагрозу, абурэнне, гнеў і пад. *У, які ты дужы! У, забойца.* **2.** Ужыв. гукапераймальна для абазначэння гудзення, свісту, выцця (вымаўляецца працяжна). *У-у-у! Гудзе вецер.*

**У...**, *прыстаўка.* **I.** Ужыв. пры ўтварэнні дзеясловаў са знач.: 1) накіраванасці дзеяння ўнутр прадмета або асяроддзя, напр.: *убіць, увезці, уплесці;* 2) распаўсюджання дзеяння на ўвесь аб'ект або на частку яго, напр.: *увешаць, удзяліць;* 3) давядзення дзеяння да поўнага выніку, напр.: *угаварыць, угарнуць, усаліць;* 4) працякання дзеяння насуперак чаму-н., напр.: *усядзець, уцярпець;* 5) аддзялення часткі ад прадмета, змяншэння або павелічэння яго колькасці, аб'ёму, змянення якасці, напр.: *урэзаць, удвоіць, усушыць;* 6) устойлівасці дзеяння, напр.: *устаяцца, улегчыся;* 7) поўнага паглыблення ў дзеянне, напр.: *учытацца, удумацца;* 8) звычак суб'екта, яго асаблівых рыс, напр.: *унадзіцца, ужыцца;* 9) стану суб'екта, напр.: *упіцца, угаманіцца;* 10) узаемнасці дзеяння, напр.: *угаварыцца, умовіцца, улюбіцца.* **II.** Ужыв. для ўтварэння прыслоўяў са знач.: 1) месца, прасторы, напр.: *убок, уверсе;* 2) часу, напр.: *увосень, уначы;* 3) меры і ступені, напр.: *удвайне, утрайне;* 4) спосабу дзеяння, напр.: *употай, уголас.* **III.** Утварае форму закончанага трывання дзеясловаў, напр.: *уджаліць, уклеіць.*

**УБА́ВІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* Зменшыцца, скараціцца. *У. ў вазе. Вады ў студні ўбавілася.* ‖ *незак.* **убаўля́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **убаўле́нне**, -я, *н.* і **уба́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.).

**УБА́ВІЦЬ**, убаўлю, уба́віш, уба́віць; уба́ўлены; *зак., што* і *каго-чаго.* Адняўшы частку, зменшыць, знізіць, аслабіць. *У. выдаткі. У. крок.* ‖ *незак.* **убаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **убаўле́нне**, -я, *н.* і **уба́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.).

**УБАКУ́**, *прысл.* **1.** У некаторым аддаленні ад каго-, чаго-н. *Стаяць у. У. ад дарогі.* **2.** *перан.* Па-за асноўным напрамкам дзейнасці, па-за агульным шляхам развіцця. *Стаяць у. ад грамадскага жыцця.*

**УБАРАНІ́ЦЦА**, -ранюся, -ро́нішся, -ро́ніцца; *зак.* (разм.). Абараніць сябе ад нападу, замаху, варожых дзеянняў; засцерагчы сябе ад небяспекі, шкоды і пад. *У. ад ворага. У. ад бяды.*

**УБАРАНІ́ЦЬ**, -раню, -ро́ніш, -ро́ніць; -ро́нены; *зак., каго-што* (разм.). Абараніць ад нападу, замаху, варожых дзеянняў; засцерагчы ад небяспекі, шкоды і пад. *У. родную зямлю ад ворага. Не ўбаранілі дзіця ад прастуды.*

**УБА́ЧЫЦЦА** *гл.* бачыцца.

**УБА́ЧЫЦЬ** *гл.* бачыць.

**УБЕ́ГЧЫ**, убягу́, убяжы́ш, убяжы́ць; убяжы́м, убежыце́, убягу́ць; убе́г, -гла; убяжы́; *зак.* Пранікнуць куды-н. бягом *У. ў хату.* ‖ *незак.* **убяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УБЕРАГЧЫ́**, -агу́, -ажэ́ш, -ажэ́; -ажо́м, -ажаце́, -агу́ць; убяро́г, уберагла́, -ло́; -ажы́; -ажо́ны; *зак., каго-што.* Зберагчы, захаваць у цэласці, ахаваць ад чаго-н. небяспечнага, непажаданага. *У. расліны ад марозу. У. дзіця ад прастуды.* ‖ *незак.* **уберага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **уберагчы́ся**, -агу́ся, -ажэ́шся, -ажэ́цца; -ажо́мся, -ажаце́ся, -агу́цца; убяро́гся, уберагла́ся, -ло́ся; уберажы́ся; *незак.* **уберага́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УБІРА́ЦЦА** *гл.* убрацца, увабрацца.

**УБІРА́ЦЬ** *гл.* убраць, увабраць.

**УБІ́ЦЬ**, уб'ю, уб'е́ш, уб'е́; уб'ём, уб'яце́, уб'ю́ць; убі́ты; *зак.* **1.** *што ў што.* Б'ючы па якім-н. прадмеце, прымусіць яго ўвайсці ўнутр чаго-н. *У. цвік у сцяну. У. у галаву што-н. каму-н.* (перан.: прымусіць трывала засвоіць якую-н. думку; разм.). **2.** *што.* Утаптаць, утрамбаваць да цвёрдасці. *У. сцежку цераз поле.* **3.** *што.*

Дадаючы да стравы, умяшаць (сырыя яйкі), разбіць на скавараду (яйкі). *У. у цеста два яйцы. У. некалькі яец на патэльню.* **4.** *што.* Змарнаваць, зрасходаваць непрадукцыйна (разм.). *У. час.* ‖ *незак.* **убіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УБЛЫ́ТАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* **1.** *у што.* Заблытацца ў чым-н. *Конь ублытаўся ў пастронкі.* **2.** *чым.* Абвязацца, абматацца чым-н. *У. рознымі лахманамі, каб машкара не кусала.* **3.** *перан., у што* і *без дап.* Умяшацца, увязацца ў што-н. (разм., неадабр.). *У. ў чужую справу.* ‖ *незак.* **ублы́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УБЛЫ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *гл.* блытаць. **2.** *каго-што ў што.* Заблытаць у чым-н. **3.** *каго-што чым.* Увязаць, абматаць чым-н. *У. валёнкі вяроўкамі.* ‖ *незак.* **ублы́тваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УБО́ГІ**, -ая, -ае. **1.** Надта бедны, жабрацкі. *Убогая хаціна. Убогая душа* (перан.). **2.** Які мае калецтва, фізічны недахоп (разм.). *Пышная душа ва ўбогім целе* (прыказка). *Падышла ўбогая* (наз.). ‖ *наз.* **убо́гасць**, -і, *ж.*

**УБО́К**, *прысл.* Управа або ўлева ад чаго-н. *Адысці ўбок.*

**УБО́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Убранне, адзенне; строі. *Шлюбны ў. Асенні ў. лесу* (перан.). ○ **Галаўны ўбор** — агульная назва рэчаў, якія надзяваюцца на галаву (шапка, капялюш, кепка і пад.).

**УБО́РАЧНАЯ**, -ай, *ж.* Уборка ўраджаю, час уборкі ўраджаю. *Распачынаецца ў.*

**УБО́РАЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да ўборкі ўраджаю, да часу ўборкі сельскагаспадарчых культур. *Уборачная тэхніка. Уборачная кампанія.*

**УБО́РКА** *гл.* убраць.

**УБО́СТВА**, -а, *н.* **1.** Беднасць, галеча, жабрацкае жыццё. **2.** Фізічны недахоп, выродлівасць. *У. гарбуна выклікала літасць і спагаду.* **3.** *перан.* Духоўная абмежаванасць, пасрэднасць. *У. думкі.*

**УБРА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Адзенне, убор; строі. *Жаночае ў. Лес у асеннім убранні* (перан.). **2.** Аддзелка, абсталяванне памяшкання; аздабленне чаго-н. *У. хаты. Ёлачнае ў.*

**УБРА́НЫ**, -ая, -ае. Прыведзены ў парадак; упрыгожаны. *Убраная хата.* ‖ *наз.* **убра́насць**, -і, *ж.*

**УБРА́ЦЦА**, убяру́ся, убярэ́шся, убярэ́цца; убяро́мся, уберацё́ся, убяру́цца; -а́ўся, -а́лася; убяры́ся; *зак.* **1.** Набыць прыгожы выгляд; прыгожа апрануцца, прыбрацца. *У. ў святочны касцюм.* **2.** Управіцца з уборкай ураджаю (разм.). *У. са збажынай.* ◊ **Убрацца ў пер'е** (разм.) — абжыцца, палепшыць матэрыяльнае становішча; пачаць жыць самастойна. ‖ *незак.* **убіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УБРА́ЦЬ**, убяру́, убярэ́ш, убярэ́; убяро́м, уберацё, убяру́ць; -а́ў, -а́ла; убяры́; -а́ны; *зак., што.* **1.** Сабраць ураджай сельскагаспадарчых культур. *У. буракі машынамі.* **2.** Надаць прыгожы выгляд, упрыгожыць. *У. залу кветкамі. Іней убраў дрэвы* (перан.). ‖ *незак.* **убіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **убо́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* (да 1 знач.).

**УБРО́Д**, *прысл.* Па дне ў мелкім месцы, не ўплаў. *Перайсці раку ў.*

**УБРЫКНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., каго (што).* Ударыць, выцяць задняй нагой ці абедзвюма задніммі нагамі (пра капытных жывёл). *Гэты чалавек можа знянацку і ў.* (перан.).

**УБУДАВА́ЦЬ**, -дую, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак., што.* Пабудаваць, збудаваць унутры чаго-н. *У. шафу ў сцяну.* ‖ *незак.* **убудо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УБУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* і *чаго* (разм.). Усыпаць, уліць, укласці куды-н. у вялікай колькасці. *У. многа гною ў глебу. Столькі грошай убухалі за мэблю* (перан.: патрацілі). ‖ *аднакр.* **убу́хнуць**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты.

**УБЫ́ЦЬ**, убуду, убу́дзеш, убу́дзе; убы́ў, -была́, -ло́; убу́дзь; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паменшаць (у колькасці, аб'ёме і пад.). *Убыла вада ў сажалцы. Убыў дзень. Убыла рашучасць* (знікла, аслабла). **2.** (звычайна з адмоўем). Пражыць, прабыць пэўны час дзе-н.; ужыцца з кім-н. *Яны там доўга не ўбудуць — вернуцца. З табою ніхто не ўбудзе.* ‖ *незак.* **убыва́ць**, -а́е (да 1 знач.).

**УБЯГА́ЦЬ** *гл.* убегчы.

**УВА**, *прыназ. з М.* Ужыв. замест прыназоўніка «у» перад словамі «мне», «усіх», «усім», напр.: *ува мне, ува ўсіх.*

**УВАБРА́ЦЦА**, убяру́ся, убярэ́шся, убярэ́цца; убяро́мся, уберацё́ся, убяру́цца; увабра́ўся, -ра́лася; убяры́ся; *зак.* (пераважна ў прошлым часе). **1.** Пранікнуць унутр чаго-н., паглынуцца, уцягнуцца. *Дзёгаць увабраўся ў юхтовыя боты.* **2.** Усяліцца куды-н. або забрацца, залезці куды-н. (разм.). *У. ў новую кватэру. У. ў гушчар.* ‖ *незак.* **убіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УВАБРА́ЦЬ**, убяру́, убярэ́ш, убярэ́; убяро́м, уберацё, убяру́ць; увабра́ў, -ра́ла; убяры́; увабра́ны; *зак.* **1.** *што.* Паступова паглынуць, уцягнуць, усмактаць у сябе. *Зямля ўвабрала ваду.* **2.** *што.* Заправіць, усунуць унутр чаго-н. *У. кашулю ў штаны.* **3.** *што.* З'есці без астатку (разм.). *У. місу капусты.* **4.** *каго.* Схапіць, захапіць (разм.). *Разведчыкі ўвабралі фашыста.* ‖ *незак.* **убіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УВА́ГА**, -і, *ДМ* увазе, *ж.* **1.** Сканцэнтраванасць думак ці зроку, слыху на чым-н. *Звярнуць увагу на што-н. Аднесціся з увагай. Удзяліць увагу каму-н. Браць пад увагу. У цэнтры ўвагі. Увазе слухачоў!* (г. зн. слухачы, звярніце ўвагу). **2.** Клапатлівыя, чулыя адносіны да каго-, чаго-н. *Сяброўская ў.*

**УВАГНА́ЦЬ**, уганю́, уго́ніш, уго́ніць; увагна́ў, -на́ла; угані́; увагна́ны; *зак.* **1.** *каго (што) у што.* Загнаць унутр. *У. жывёлу ў хлеў.* **2.** *што ў што.* З сілай убіць, уткнуць. *У. рыдлёўку ў зямлю.* **3.** *перан., каго (што) у што.* Давесці да якога-н. стану (звычайна непрыемнага). *У. у пот. У. у чырвань. У. у расходы.* ‖ *незак.* **уганя́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**УВАГНУ́ТЫ**, -ая, -ае. Які мае дугападобную паверхню з угінам унутр; *проціл.* выпуклы. *Увагнутае люстра.* ‖ *наз.* **увагну́тасць**, -і, *ж.*

**УВАГНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прагнуцца ўнутр, утварыўшы паглыбленне. **2.** Сагнуцца пад цяжарам чаго-н.; згорбіцца. ‖ *незак.* **угіна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УВАГНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., што.* **1.** Сагнуць, уціснуць унутр чаго-н., зрабіць паглыбленне ў чым-н. **2.** Апусціць уніз, схіліць (галаву, плечы і пад.). **3.** З цяжкасцю сагнуць. *Дрот цвёрды, насілу ўвагнуў.* ‖ *незак.* **угіна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УВА́ЖЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Прасякнуты ўвагай (у 1 знач.), сканцэнтраваны. *У. слухач. У. позірк.* **2.** Які праяўляе ўвагу (у 2 знач.); чулы. *У. гаспадар. Уважліва* (прысл.) *аднесціся да просьбы старога чалавека.* **3.** Дастатковы для апраўдання чаго-н. *Уважлівая прычына.* ‖ *наз.* **ува́жлівасць**, -і, *ж.*

**УВА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; *зак.* **1.** *што.* Выканаць, прызнаўшы абгрунтаваным. *У. чыю-н. просьбу.* **2.** *каго (што).* Аказаць каму-н. павагу, выканаўшы яго жаданне. *У. старога чалавека.* **3.** *каму.* Зрабіць уступку, прыняўшы пад увагу што-н. *Яму нельга не ў., ён старэйшы.*

**УВАЗНЫ́** *гл.* увезці.

**УВАЙСЦІ́**, увайду́, уво́йдзеш, уво́йдзе; увайшо́ў, -шла́, -ло́; увайдзі́; *зак.* **1.** Уступіць, пранікнуць унутр. *У. ў дом. У. ў гісторыю* (перан.: захавацца ў памяці чалавецтва). **2.** Уключыцца ў склад, у члены чаго-н. *У. ў склад праўлення.* **3.** Змясціцца. *У бочку ўвайшло яшчэ адно вядро вады.* **4.** Асвоіцца з чым-н., унікнуць у што-н. *У. ў новую работу. У. ў курс справы.* **5.** У спалучэнні з абстрактнымі назоўнікамі азначае пачатак дзеяння, стану, названага назоўнікам. *У. ў моду* (стаць звычайным, прывычным). *У. ў прывычку* (стаць прывычным). *У. ў азарт* (моцна захапіцца чым-н., адчуць запал да чаго-н.). *У. ў давер* (пачаць карыстацца даверам). *У. ў сілу* (падужэць, а таксама стаць законным, дзейным). **6.** Прайсці які-н. шлях (разм.). *У. дзесяць кіламетраў.* ‖ *незак.* **уваходзі́ць**, -джу, -дзіш, -дзіць (да 1—5 знач.). ‖ *наз.* **уваход**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 знач.) *і* **ухо́джанне**, -я, *н.* (да 1, 2, 4 і 5 знач.).

**УВАЛАЧЫ́**, -лаку́, -лачэ́ш, -лачэ́; -лачо́м, -лачаце́, -лаку́ць; -ло́к, -лакла́, -ло́; -ло́чаны; *зак., каго-што* (разм.). **1.** Уцягнуць, з цяжкасцю ўнесці ўнутр чаго-н. *У. мех з бульбай у сенцы.* **2.** Украсці. *Воўк увалок авечку.* ‖ *незак.* **увалака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УВАЛІ́ЦЦА**[1], увалю́ся, ува́лішся, ува́ліцца; *зак.* **1.** *у што.* Упасці ўнутр чаго-н.

*У. ў сажалку.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць упалым. *Шчокі ўваліліся.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Абрушыцца ўнутр чаго-н. (разм.). *Увалілася страха гумна.* **4.** Увайсці з шумам, цяжка (разм.). *У сені ўваліўся цэлы натоўп.* ‖ *незак.* **ува́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УВАЛІ́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., ува́ліцца; *зак.* Пра сукно, шэрсць: ушчыльніцца ў працэсе валення, стаць цвёрдым. *Сукно добра ўвалілася.* ‖ *незак.* **ува́львацца**, -аецца.

**УВАПРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *упрэлы.*

**УВАПРЭ́ЦЬ** *гл.* упрэць.

**УВАПХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што* (разм.). Тое, што і *упхаць.* ‖ *незак.* **упіха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **упі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УВАПХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* (разм.). Тое, што і *упхнуцца. У. ў перапоўнены аўтобус.* ‖ *незак.* **упіха́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **упі́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УВАПХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што* (разм.). Тое, што і *упхнуць.* ‖ *незак.* **упіха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **упі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УВАРВА́ЦЦА**, -ву́ся, -ве́шся, -ве́цца; -вёмся, -вяце́ся, -ву́цца; -ві́ся; *зак.* Увайсці куды-н. сілай, пераадольваючы перашкоды. *У. ў чужую хату. У акно ўварваўся вецер.* ‖ *незак.* **урыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УВАРВА́ЦЬ**, -ву́, -ве́ш, -ве́; -вём, -вяце́, -ву́ць; -ві́; -ва́ны; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Хуткім рухам вырваць невялікую частку чаго-н. *У. жменю сена. У. грошай* (перан.). *У. часу для размовы* (перан.: выкраіць). **2.** *што* і *чаго.* Прымусіць каго-н. патраціць час, энергію, сілы і пад. (разм.). *Колькі ён мне здароўя ўварваў!* **3.** *каго* і *без дап.* Укусіць. *Сабака ўварваў за нагу.* ‖ *незак.* **урыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1 і 2 знач.).

**УВАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., каго-што.* Усцерагчы. *У. ад злодзеяў.*

**УВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., ува́рыцца; *зак.* **1.** Добра зварыцца. *Грыбы ўварыліся.* **2.** Паменшыцца ад уварвання. *Мяса ўварылася.* ‖ *незак.* **ува́рвацца**, -аецца.

**УВАСАБЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* увасобіць. **2.** *чаго.* Той (тое), у кім (чым) увасобіліся якія-н. характэрныя рысы. *Гэты чалавек — у. дабрыні і сціпласці.*

**УВАСКРЭ́СІЦЬ**, -э́шу, -э́сіш, -э́сіць; -э́шаны; *зак.* **1.** *каго-што.* У рэлігійных уяўленнях: вярнуць да жыцця таго, хто памёр; ажывіць. **2.** *перан., каго (што).* Аднавіць чые-н. сілы, бадзёрасць, ажывіць. *Спорт уваскрэсіў ранейшую сілу і спрыт.* **3.** *перан., каго-што.* Аднавіць у памяці што-н. страчанае, забытае. *У. вобраз у памяці.* ‖ *незак.* **уваскраша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **уваскрашэ́нне**, -я, *н.*

**УВАСКРЭ́СЛЫ**, -ая, -ае. **1.** У рэлігійных уяўленнях: які ўваскрэс, вярнуўся да жыцця. **2.** Які зноў ажыў, праявіўся з ранейшай сілай. *Уваскрэслае ў памяці мінулае.*

**УВАСКРЭ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; уваскрэ́с, -сла; -ні; *зак.* **1.** У рэлігійна-містычных уяўленнях: стаць зноў жывым. **2.** *перан.* Набыць новыя сілы, стаць зноў бадзёрым, ажыць. *У. духам.* **3.** *перан.* Праявіцца з ранейшай сілай; адрадзіцца, аднавіцца. *Ва ўспамінах уваскрэсла мінулае.* ‖ *незак.* **уваскраса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **уваскрэ́сенне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**УВАСО́БІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак., у кім-чым* (кніжн.). Знайсці праяўленне, адлюстраванне ў якой-н. канкрэтнай справе. ‖ *незак.* **увасабля́цца**, -я́ецца.

**УВАСО́БІЦЬ**, -блю, -біш, -біць; -блены; *зак.* **1.** *каго-што.* Адлюстраваць у вобразе жывой істоты. **2.** *каго-што.* Выразіць у якой-н. канкрэтнай форме. *У. ідэю ў мастацкім вобразе.* ‖ *незак.* **увасабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **увасабле́нне**, -я, *н.*

**УВАССА́ЦЬ**, -су́, -се́ш, -се́; -сём, -сяце́, -су́ць; -сі́; -са́ны; *зак., што* і *чаго.* Ссучы, усмактаць некаторую колькасць. *У. што-н. з малаком маці* (перан.: засвоіць з ранняга дзяцінства).

**УВАСЬМЁХ**, *прысл.* У колькасці васьмі чалавек (толькі пра мужчын або толькі пра жанчын).

**УВАСЬМЯРЫ́Х**, *прысл.* Колькасцю ў восем асоб (рознага полу) або істот (ніякага роду).

**УВАХО́Д**, -а *і* -у, *М* -дзе, *м.* **1.** -у, *гл.* увайсці. **2.** -а, *мн.* -ы, -аў. Месца, праз якое ўваходзяць куды-н. *У. у пячору.* ‖ *прым.* **увахо́дны**, -ая, -ае. *Уваходныя дзверы. У. білет* (які дае права на ўваход куды-н.).

**УВАХО́ДЖАННЕ** *гл.* увайсці.

**УВАХО́ДЗІНЫ**, -дзін (разм.). Урачыстая гулянка з выпадку перасялення на новае месца, у новае жылое памяшканне.

**УВАХО́ДЗІЦЬ** *гл.* увайсці.

**УВАЧАВІ́ДКІ**, *прысл.* **1.** Хутка, на вачах; імгненна. *Дарога падсыхала ў.* **2.** Сваімі вачамі, асабіста. *Упэўніцца ў.*

**УВАЧЧУ́**, *прысл.* У вачах. *Аж пацямнела ў. Хто баіцца, таму ў. дваіцца* (прыказка).

**УВЕ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* **1.** *аб кім-чым, пра каго-што* і *з дадан.* Атрымаць звесткі пра каго-, што-н.; выведаць што-н., дазнацца. *У. пра смерць (аб смерці) знаёмага. У., што здарылася.* **2.** *каго-што* і *з дадан.* Набыць веды адносна чаго-н.; атрымаць належнае ўяўленне пра каго-, што-н. *У. шмат новага з кніг і часопісаў. У. людзей. У. цану жыцця.* **3.** *што.* Зазнаць, зведаць, перажыць. *У. многа гора.* ‖ *незак.* **уве́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УВЕ́ЗЦІ**, увязу́, увязе́ш, увязе́; увязём, увезяце́, увязу́ць; увёз, уве́зла; увязі́; уве́зены; *зак., каго-што ў што.* Везучы, даставіць куды-н., унутр чаго-н. *У. тавары з-за мяжы.* ‖ *незак.* **уво́зіць**, -о́жу, -о́зіш, -о́зіць. ‖ *наз.* **уво́з**, -у, *м.; прым.* **увазны́**, -а́я, -о́е. *Увазная пошліна.*

**УВЕКАВЕ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Зрабіць навекі памятным, праславіць. *У. падзеі ў творах мастацтва.* **2.** *што.* Зрабіць нязменным, устойлівым, даўгавечным. ‖ *незак.* **увекаве́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **увекаве́чанне**, -я, *н.*

**УВЕ́НЧВАЦЦА** *гл.* увянчацца.

**УВЕ́НЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго-што.* Ушаноўваць вянком, лаўрамі. *У. чэмпіёна лаўровым вянком.* **2.** *што.* Тое, што і *вянчаць* (у 2 знач.). ‖ *зак.* **увянча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны (да 1 знач.). ‖ *наз.* **уве́нчванне**, -я, *н.*

**УВЕ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак., у каго-што* (кніжн.). Канчаткова паверыць у што-н. *У. у поспех.*

**УВЕРАДЗІ́ЦЬ**, увераджу́, увярэ́дзіш, увярэ́дзіць; увярэ́джаны; *зак., што.* Стаміць працай або пакалечыць, параніць. *У. руку.*

**УВЕ́РСЕ**, *прысл.* У верхняй частцы, у вышыні. *У. над дзвярыма была вялікая шчыліна.*

**УВЕ́РХ**, *прысл.* **1.** У вышыню, увысь; у напрамку да верхняй часткі чаго-н. *Полымя ўзвіваецца ў. Сцежка вяла ў., на ўзгорак.* **2.** Унутраным бокам наверх ці ніжняй часткай прадмета ўгору. *Вывернуць кажух у. шэрсцю. На беразе ляжала лодка ў. дном.* **3.** У напрамку да вытоку ракі, супраць цячэння. *У. па Дняпры.* ◊ **Уверх дном** (разм.) — не так, як трэба (пра ход спраў, парушэнне звычайнага парадку).

**УВЕРЦЮ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -цю́р, *ж.* **1.** Музычны ўступ да оперы, балета, драмы і пад. *Оперная ў.* **2.** Музычны твор, які складаецца з адной часткі і адносіцца да праграмнай музыкі. ‖ *прым.* **уверцю́рны**, -ая, -ае.

**УВЕ́РЧВАННЕ** *гл.* увярцець.

**УВЕ́РЧВАЦЦА** *гл.* увярцець.

**УВЕ́РЧВАЦЬ** *гл.* увярцець.

**УВЕ́СНУ**, *прысл.* (разм.). Вясной.

**УВЕ́СЦІ**, увяду́, увядзе́ш, увядзе́, увядзём, уведзяце́, увяду́ць; увёў, увяла́, -ло́; увядзі́; уве́дзены; *зак.* **1.** *каго-што ў што.* Прымусіць увайсці, прывесці куды-н. *У. войскі ў горад. У. карову ў хлеў.* **2.** *што ў што.* Уліць, упусціць, умяшаць унутр чаго-н. *У. глюкозу.* **3.** *каго-што ў што.* Уключыць у што-н., зрабіць дзейным або ўжывальным. *У. ў бой новыя сілы. У. канал у эксплуатацыю. У. мяч ў гульню.* **4.** *каго (што) у што.* Уцягнуць у што-н.; прычыніць каму-н. што-н. *У. ў выдаткі. У. ў грэх.* **5.** *каго (што) у што.* Дапамагчы асвоіцца з чым-н., азнаёміць. *У. ў свае планы.* **6.** *што.* Устанавіць, пакласці пачатак чаму-н. *У. самаабслугоўванне. У. надзвычайнае становішча.* ‖ *незак.* **уво́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць. ‖ *наз.* **увядзе́нне**, -я, *н. і* **уво́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 і 3 знач.).

**УВЕ́СЬ**, усяго́, *м.*, уся́, усёй, *ж.*, усё, усяго́, *н.*, *мн.* усе́, усі́х; *займ. азнач.* **1.** Поўны, без выключэння, цалкам. *Праседзець у. вечар за кнігай. У. мокры. Спаліць усе дровы.*

*Ва ўсёй красе. З усёй сілы.* **2.** *у знач. наз.* **усё**, усягó, *н.* Тое, што ёсць, цалкам, без выключэння. *Усё для справы. Заўсёды ўсім задаволены. Усяго пакрыху. Усё разам узятае* (усе абставіны, усё, пра што гаварылася). **3.** *у знач. наз.* **усé**, усíх. У поўным складзе, без выключэння (пра людзей). *Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. Усе да аднаго* (без выключэння). *Лепшы за ўсіх.* **4.** (толькі ў *Н*). Скончыцца, зрасходавацца цалкам. *Соль уся.* **5.** толькі *н.* Скончана, канец (разм.). *Больш не ўбачымся. Усё. Не хачу ехаць — і ўсё!* ◊ **Па ўсім відаць** (разм.) — па ўсіх прыметах. *Па ўсім відаць, што ён не згодзіцца на абмен.* **Увесь** *у каго* (у бацьку, у маці і пад.) *хто* — пра падабенства каго-н. да каго-н. **Усё адно** або **усё роўна** — аднолькава, няма розніцы, абавязкова нягледзячы ні на што. *Усё адно я не пайду туды. Мне ўсё роўна.* **Усё адно як** або **усё роўна як** — як быццам бы. *Ты ўсё адно як глухі.* **Усё як ёсць** (разм.) — літаральна ўсё, поўнасцю. *Прадаць усё як ёсць.* **Усяго добрага** (або **найлепшага**) — пажаданне пры развітанні.

**УВЕ́ЧАР** *і* **УВЕ́ЧАРЫ**, *прысл.* Вечарам.

**УВЕ́ШАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што чым.* Вешаючы што-н. на каго-, што-н., закрыць якую-н. прастору. *У. сцены пакоя фотакарткамі.* ‖ *незак.* **уве́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **уве́шацца**, -аюся, -аешся, -аецца. *У. каралямі; незак.* **уве́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УВІВА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак., каля каго* (разм.). Вярцецца каля каго-н., неадступна хадзіць за кім-н., дамагаючыся чаго-н., дагаджаючы каму-н. *У. каля дзяўчыны.*

**УВІВА́ЦЬ** *гл.* увіць.

**УВІЛЬГАТНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -íцца; *зак.* Стаць вільготным, насыціцца вільгаццю. ‖ *незак.* **увільгатня́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **увільгатне́нне**, -я, *н.*

**УВІЛЬГАТНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніцé, -ня́ць; -гóтнены; *зак., што.* Зрабіць вільготным, насыціць вільгаццю. *Веснавыя дажджы ўвільгатнілі глебу.* ‖ *незак.* **увільгатня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **увільгатне́нне**. -я, *н.*

**УВІЛЬНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** *ад каго-чаго.* Лоўка павярнуўшыся, пазбегнуць чаго-н. *У. ад удару.* **2.** *перан., ад чаго.* Ухіліцца ад чаго-н., карыстаючыся рознымі хітрыкамі. *У. ад цяжкай працы.* ‖ *незак.* **уві́льваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уві́льванне**, -я, *н.*

**УВІХА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* **1.** *каля каго-чаго, па чым.* Хутка і спрытна рабіць што-н., займацца чым-н.; клапаціцца пра каго-, што-н. *У. каля печы.* **2.** *каля каго-чаго* і *за кім-чым.* Тое, што і *увівацца. У. каля начальства.* **3.** Хутка рухацца, круціцца. *Трос круціўся, увіхаўся.* ‖ *наз.* **увіха́нне**, -я, *н.*

**УВІ́ЦЬ**, уваўю́, уваўе́ш, уваўе́; уваўём, уваўяце́, уваўю́ць; увіў, увілá, -лó; уві́; уві́ты; *зак.* **1.** *што ў што.* Уплесці віццём. *У. стужку ў вянок.* **2.** *што на што.* Намотваючы, змясціць. *У. усю пражу на верацяно.* **3.** *каго-што.* Абвіць па ўсёй паверхні. *Дзікі вінаград увіў сцены дома.* **4.** *што чым.* Упрыгожыць, абвіваючы чым-н. *У. арку гірляндамі.* ‖ *незак.* **увіва́ць**, -áю, -áеш, -áе.

**УВІШНЫ́**, -áя, -óе. **1.** Жвавы, спрытны ў рухах (пра чалавека, жывёл, птушак); уласцівы такому чалавеку; хуткі, спорны. *У. ў рабоце. Увішныя рухі.* **2.** *перан.* Вынаходлівы, хітры. *У. палітык.* ‖ *наз.* **уві́шнасць**, -і, *ж.*

**УВО́ГУЛЕ.** **1.** *прысл.* Разглядаючы цалкам, не звяртаючы ўвагі на дробязі, прыватнае. *У. справы ідуць нядрэнна.* **2.** *прысл.* Заўсёды, ва ўсіх выпадках. *Ён у. такі.* **3.** Ужыв. ў знач. абагульняючага слова перад заключэннем, падагульненнем. *На гэтым работу закончым і ў. мы ўжо стаміліся.* **4.** *у знач. пабочн. сл.* У цэлым, у выніку. *Не дрэнны, у., чалавек, але п'е.*

**УВО́Д**, -а *і* -у, *М* -дзе, *м.* **1.** -у, *гл.* увесці. **2.** -а. Устройства, месца, праз якое што-н. уваходзіць, устаўляецца; прыёмная частка машыны або ўстаноўкі. *Электрычны ў.* ‖ *прым.* **уво́дны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**УВО́ДЗІНЫ**, -дзін. Уступная, пачатковая частка чаго-н. *У. да падручніка. У. ў мовазнаўства* (навука аб асновах мовазнаўства).

**УВО́ДЗІЦЬ** *гл.* увесці.

**УВО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* увод. **2.** Які з'яўляецца ўступам, увядзеннем у што-н. *Уводная лекцыя.*

**УВО́З** *гл.* увезці.

**УВО́ЗІЦЬ** *гл.* увезці.

**УВО́ЛЮ**, *прысл.* Да поўнага задавальнення, удосталь. *Конь еў аўса ў.*

**УВО́СЕНЬ**, *прысл.* У асенні час, восенню. *У. збіраюць яблыкі.*

**УВО́СЬМЕРА**, *прысл.* У восем разоў, у восем частак. *Скласці паперу ў. У. больш.*

**УВЫ́СЬ**, *прысл.* Тое, што і *увышыню.*

**УВЫШЫНЮ́**, *прысл.* Уверх, угару. *Дубок падняўся ў.*

**УВЯДЗЕ́ННЕ** *гл.* увесці.

**УВЯЗА́ЦЦА**, увяжу́ся, увя́жашся, увя́жацца; увяжы́ся; *зак.* **1.** Стаць увязаным, завязаным. *Рэчы добра ўвязаліся.* **2.** *перан.* Прыйсці ў адпаведнасць з чым-н. *Планы добра ўвязаліся з мясцовымі ўмовамі.* **3.** *перан.* Без дазволу накіравацца ўслед за кім-н., далучыцца да каго-н., хто ідзе, едзе (разм.). *За намі ўвязаўся сабака.* **4.** *перан.* Уключыцца, умяшацца ў што-н. (разм.). *У. ў бойку.* ‖ *незак.* **увя́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УВЯЗА́ЦЬ**[1], увяжу́, увя́жаш, увя́жа; увяжы́; -я́заны; *зак., што.* **1.** Абвязаць з усіх бакоў або абвязаўшы, прывязаць да чаго-н.; сабраўшы, звязаць чым-н. *У. воз. У. дровы на возе. У. рэчы ў пасылку.* **2.** *перан.* Узгадніць, прывесці ў адпаведнасць з чым-н. *У. тэорыю з практыкай.* **3.** *у што.* Уплесці вязаннем. ‖ *незак.* **увя́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **увя́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* і **увя́званне**, -я, *н.*

**УВЯЗА́ЦЬ**[2], -áю, -áеш, -áе; *незак.* Тое, што і *вязнуць. У. у гразі.*

**УВЯ́ЗНУЦЬ** *гл.* вязнуць.

**УВЯНЧА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *зак., чым* (кніжн.). Завяршыцца чым-н. добрым. *Справа ўвянчалася поспехам.* ‖ *незак.* **уве́нчвацца**, -аецца.

**УВЯНЧА́ЦЬ** *гл.* вянчаць, увенчваць.

**УВЯРЦЕ́ЦЬ**, увярчу́, уве́рціш, уве́рціць; уве́рцім, уве́рціце, уве́рцяць; увярці́; уве́рчаны; *зак., каго-што.* Завярцець, ухутаць у што-н., закрыўшы з усіх бакоў. *У. дзіця ў коўдру.* ‖ *незак.* **уве́рчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **увярце́цца**, увярчу́ся, уве́рцішся, уве́рціцца; уве́рцімся, уве́рціцеся, уве́рцяцца; *незак.* **уве́рчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **уве́рчванне**, -я, *н.*

**УГАВАРЫ́ЦЦА**, -вару́ся, -вóрышся, -вóрыцца; *зак.* **1.** Загадзя дамовіцца пра што-н.; прыйсці да згоды ў выніку перагавораў. *У. аб сустрэчы. Угаварыліся, што збяромся ў нядзелю.* **2.** Сказаць лішняе, прагаварыцца (разм.). *Чалавек угаварыўся, а потым папраўіўся.* ‖ *незак.* **угаво́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 знач.).

**УГАВАРЫ́ЦЬ**, -вару́, -вóрыш, -вóрыць; -вóраны; *зак., каго (што).* **1.** і *з інф.* або *дадан.* Пераконваючы, схіліць да чаго-н. *У. пайсці ў грыбы.* **2.** Супакоіць, суцешыць. *У. дзіця.* ‖ *незак.* **угаво́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **угаво́рванне**, -я, *н.* і **угаво́р**, -у, *м.* (звычайна *мн.*). *Не паддавацца ніякім угаворам.*

**УГАВО́Р**, -у, *м.* **1.** *гл.* угаварыць. **2.** Узаемная дамоўленасць пра што-н. *Дзейнічаць па ўгаворы* (як дамовіліся). *У. даражэй за грошы* (прыказка).

**УГАДА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак.* **1.** *што.* Выказаць правільнае меркаванне пра што-н. па якіх-н. прыметах; здагадацца. *У. чый-н. настрой.* **2.** *каго-што.* Раскрыць, распазнаць сэнс, сутнасць каго-, чаго-н. (разм.). *Мы ўгадалі выкапаць калодзеж у добрым месцы.* **3.** *што* і *без дап.* Выпадкова даць правільны адказ. ‖ *незак.* **уга́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уга́дванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**УГАДЗІ́ЦЬ**, угаджу́, угóдзіш, угóдзіць; *зак., каму.* Тое, што і *дагадзіць.*

**УГАЙДА́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *зак.* (разм.). Ад гайданкі прыйсці ў хваравіты або санлівы стан. *Угайдаўся ў верталёце.* ‖ *незак.* **угóйдвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УГАЛО́П**, *прысл.* Самым хуткім аллюрам, галопам. *Пусціць каня ў.*

**УГАМАНІ́ЦЦА**, -маню́ся, -мóнішся, -мóніцца; *зак.* (разм.). Супакоіцца, уціхнуць. *Гракі доўга не маглі ў. Мяцеліца к вечару ўгаманілася.* ‖ *незак.* **угамо́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УГАМАНІ́ЦЬ**, -маню́, -мóніш, -мóніць; -мóнены; *зак., каго (што)* (разм.). Супакоіць, суняць. *У. гарлапана.* ‖ *незак.* **угамо́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УГАМО́Н**, -у, *м.* У выразе: **угамону няма** *на каго (што)* (разм.) — хто-н. не можа ўгаманіцца, супакоіцца.

**УГАНЯ́ЦЬ** *гл.* увагнаць.

**УГА́Р**, -у, *м.* (спец.). **1.** *гл.* угарэць. **2.** звычайна *мн.* Адходы пры апрацоўцы валакна, пражы і пад., прыгодныя для новай перапрацоўкі. ‖ *прым.* **уга́рны**, -ая, -ае. *Угарная пража.*

**УГАРАДЗІ́ЦЬ**, -раджу́, -ро́дзіш, -ро́дзіць; -ро́джаны; *зак.* **1.** *што* і *чаго.* Аддзяліць агароджай у сваю карысць. *У. пожні.* **2.** *што.* Акружыць агароджай. *У. двор.*

**УГАРНУ́ЦЬ**, угарну́, уго́рнеш, уго́рне; угарні́; уго́рнуты; *зак., каго-што ў што.* **1.** Горнучы, перамясціць куды-н. *У. жар у печ.* **2.** Ухутаць у што-н., закрыўшы з усіх бакоў; увярцець, укруціць. *У. рэчы ў паперу. У. дзіця ў коўдру.* ‖ *незак.* **уго́ртваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уго́ртванне**, -я, *н.*

**УГАРУ́** *і* **УГО́РУ**, *прысл.* (разм.). Увышыню, уверх. *Шар падняўся ў. Дубы ўзнімаюць у. свае цяжкія кроны.* ◊ **Ісці ўгару** (разм.) — 1) атрымаць павышэнне па службе; 2) паспяхова развівацца. **Лапкі ўгору** (разм., жарт.) — не супраціўляцца.

**УГАРЫ́**, *прысл.* У вышыні (у паветры, у небе). *У. ціўкнуў верабей.*

**УГАРЭ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́цца; *зак.* Пачаць добра гарэць, разгарацца. *Дровы ўгарэліся.*

**УГАРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ры́ць, *зак.* (спец.). Паменшаць пры гарэнні, плаўленні, тэхнічнай апрацоўцы. ‖ *незак.* **угара́ць**, -áе *і* **уга́рваць**, -ае. ‖ *наз.* **уга́р**, -у, *м.*

**УГАЦІ́ЦЬ**, угачу́, угаці́ш, угаці́ць; угаці́м, угаціце́, угацяць; уга́чаны; *зак., што ў што.* **1.** Выкарыстаць для гачэння, укласці ў гаць. **2.** Зрасходаваць усё ці вялікую колькасць чаго-н. (разм.). *У. усё масла ў кацёл.* ‖ *незак.* **уга́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УГІНА́ЦЦА** *гл.* увагнуцца.

**УГІНА́ЦЬ** *гл.* увагнуць.

**УГЛЕ́ДЗЕЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* **1.** *у каго-што, на каго-што* і *без дап.* Уважліва працягла глядзець, прыглядзецца, стараючыся ўбачыць каго-, што-н. *У. ў марскую даль.* **2.** *у каго-што.* Не зводзячы вачэй, нерухома глядзець куды-н., на каго-, што-н., уставіцца, утаропіцца. *Чаго ты гэтак угледзеўся ў мяне?* ‖ *незак.* **угляда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **угля́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УГЛЕ́ДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *каго-што, без дап.* і *з дадан.* Заўважыць, прымеціць, згледзець. *Упрыцемку я не ўгледзела, хто ішоў.* **2.** *за кім-чым.* Дагледзець, прасачыць за кім-, чым-н. (разм.). *За ўсімі не ўгледзіш.* **3.** *што ў чым.* Устанавіць, выявіць, убачыць. *У. сур'ёзную памылку ў артыкуле.*

**УГЛЫ́Б**, *прысл.* і *прыназ. з Р.* Тое, што і *углыбіню.*

**УГЛЫБІНЮ́**, *прысл.* і *прыназ. з Р.* **1.** Углыб чаго-н., унутр. *Паплавок пайшоў у.* **2.** *прыназ.* У што-н., унутр чаго-н. *У. лесу.*

**УГЛЫ́БІЦЦА**, -блюся, -бішся, -біцца; *зак., у што.* **1.** Зайсці ў глыбіню чаго-н. або капаючы, рыючы, пранікнуць глыбей у зямлю. *У. ў лес. Будаўнікі метро ўглыбіліся на дзесяць метраў у зямлю.* **2.** *перан.* Засяроджвацца, цалкам аддацца чаму-н.; унікнуць у тонкасці чаго-н. *У. ў аналіз твора.* ‖ *незак.* **углыбля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **углыбле́нне**, -я, *н.*

**УГНАЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* угнаіць. **2.** *мн.* -і, -яў. Рэчыва, якое ўносіцца ў глебу для павелічэння ўраджаю. *Мінеральныя, арганічныя ўгнаенні. Вывозіць у. на палі.*

**УГНАІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., угно́іцца; *зак.* Стаць угноеным. ‖ *незак.* **угно́йвацца**, -аецца.

**УГНАІ́ЦЬ**, угнаю, угно́іш, угно́іць; угно́ены; *зак., што.* Павысіць пажыўныя ўласцівасці (глебы) унясеннем якога-н. рэчыва. *У. агарод.* ‖ *незак.* **угно́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **угнае́нне**, -я, *н. і* **угно́йванне**, -я, *н.*

**УГНА́ЦЦА**, уганю́ся, уго́нішся, уго́ніцца; угна́ўся, -на́лася; уганіся; *зак., за кім-чым.* **1.** Пабегчы так, каб дагнаць. *У. за хлопчыкам.* **2.** (звычайна з адмоўем). Не адстаючы, ісці, бегчы за кім-, чым-н. *За вамі не ў.* **3.** (звычайна з адмоўем), *перан.* Зраўняцца з кім-, чым-н. у чым-н. *За ім у рабоце ніхто не ўгоніцца.*

**УГНЕ́ВАНЫ**, -ая, -ае. Якога ўвялі ў гнеў, які выяўляе гнеў. *У. сусед. У. голас.* ‖ *наз.* **угне́ванасць**, -і, *ж.*

**УГНЕ́ВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак.* Увайсці ў вялікі гнеў; раззлавацца.

**УГНЯВІ́ЦЦА**, -няўлю́ся, -не́вішся, -не́віцца; *зак.* Тое, што і *угневацца.*

**УГНЯВІ́ЦЬ** *гл.* гнявіць.

**УГНЯЗДЗІ́ЦЦА**, -язджу́ся, -е́здзішся, -е́здзіцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Звіць сабе гняздо дзе-н. (пра птушак). **2.** Зручна размясціцца, асталявацца дзе-н., звычайна на невялікай прасторы (разм.). *У. на печы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Моцна ўкараніцца дзе-н., у чым-н. (пра абстрактныя паняцці). *Угняздзілася такая думка.*

**УГО́ДДЗЕ**, -я, звычайна *мн.* -і, -яў, *н.* Месца, тэрыторыя як аб'ект сельскагаспадарчага прызначэння (поле, лес, возера і пад.). *Сенакосныя ўгоддзі. Лясныя ўгоддзі.*

**УГО́ДКІ**, -дак (уст.). Гадавіна (звычайна) з дня смерці, а таксама наогул урачыстасць, прысвечаная гадавіне якой-н. падзеі.

**УГО́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Празмерна паслужлівы, ліслівы, дагодлівы. *У. чалавек.* ‖ *наз.* **уго́длівасць**, -і, *ж.*

**УГО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Угодлівы чалавек (разм.). **2.** У рэлігійным уяўленні: святы, які ўгадзіў Богу сваім бязгрэшным жыццём. ‖ *ж.* **уго́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**УГО́ДНІЦТВА**, -а, *н.* (разм.). Рабалепна-лісլівае імкненне дагадзіць каму-н. *Яго прынцыповай натуры праціўна было ў.*

**УГО́ДНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Весці сябе ўгодліва. *У. перад начальнікам.*

**УГО́ЙДВАЦЦА** *гл.* угайдацца.

**УГО́ЛАС**, *прысл.* **1.** Так, што чутно іншым, гучна, голасна. *Чытаць у.* **2.** *перан.* Адкрыта, на людзях. *Заявіць пра што-н. у.*

**УГО́РТВАННЕ** *гл.* угарнуць.

**УГО́РТВАЦЬ** *гл.* угарнуць.

**УГО́РУ** *гл.* угару.

**УГРАВА́ЦЦА** *гл.* угрэцца.

**УГРАВА́ЦЬ** *гл.* угрэць.

**УГРА́ЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; угра́з, -зла; -ні; *зак.* **1.** Засесці, завязнуць у гразі. **2.** *перан.* Трапіўшы ў якое-н. становішча, не знайсці сіл, магчымасці выйсці з яго (разм.). *У. у даўгах.* ‖ *незак.* **угразა́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**У́ГРА-ФІ́НСКІ**, -ая, -ае. Тое, што і *фіна-ўгорскі.*

**УГРУ́ЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; угру́з, -зла; -ні; *зак.* Глыбока ўвязнуць (у гразі, снезе і пад.); асесці, уехаць у зямлю. *У. у снезе. Хацінка ўгрузла ў зямлю.* ‖ *незак.* **угруза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УГРУНТАВА́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Зроблены надзейна, моцна. *У. падмурак.* **2.** Падмацаваны пераканаўчымі доказамі, меркаваннямі. *У. довад.* ‖ *наз.* **угрунтава́насць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**УГРУНТАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ту́ецца; *зак.* Устанавіцца, усталявацца. *Адносна рэферэндуму ўгрунтавалася пэўная думка.* ‖ *незак.* **угрунто́ўвацца**, -аецца.

**УГРУНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., што.* **1.** Зрабіць больш устойлівым, моцным, надзейным; усталяваць. **2.** Прывесці пераканаўчыя доказы, матывы ў карысць чаго-н.; абгрунтаваць. *У. прычыну сваёй заявы.* ‖ *незак.* **угрунто́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **угрунто́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **угрунтава́нне**, -я, *н.*

**УГРЫ́ЗЦІСЯ**, -зу́ся, -зе́шся, -зе́цца; -зёмся, -зяце́ся, -зу́цца; угры́зся, -зла́ся, -ло́ся; -зі́ся; *зак., у каго-што.* Моцна ўчапіцца зубамі. ‖ *незак.* **угрыза́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УГРЭ́ЦЦА**, -э́юся, -э́ешся, -э́ецца; *зак.* (разм.). **1.** Сагрэцца, нагрэцца. *Зямля ўгрэецца — хутчэй зерне ўзыдзе.* **2.** Успацець, упарыцца, вельмі ўтаміцца. *Конь угрэўся.* ‖ *незак.* **уграва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УГРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; -э́ты; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Зрабіць цёплым, нагрэць, сагрэць. *Ледзь угрэлі гэту печ.* **2.** *без дап.* Прыгрэць. *Угрэла сонца.* **3.** *каго-што.* Упарыць, моцна ўтаміць. *У. каня.* **4.** *каго, па чым* і *без дап.* Ударыць чым-н., агрэць (груб.). *У. па патыліцы.* ‖ *незак.* **уграва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УДАВА́**, -ы́, *мн.* удо́вы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) удавы́, удо́ў, *ж.* Жанчына, у якой памёр муж. ‖ *прым.* **удаві́ны**, -ая, -ае. *Удавіная доля.*

**УДАВА́ЦЦА**[1] *гл.* удацца[1].

**УДАВА́ЦЦА**[2] *гл.* удацца[2].

**УДАВА́ЦЬ**, удаю, удае́ш, удае́; удаём, удаяце́, удаю́ць; *незак.* (разм.). **1.** *гл.* удаць. **2.** (пераважна са словамі «сябе», «з сябе»). Рабіць выгляд, прыкідвацца. *У. з сябе пакрыўджанага.*

**УДАВЕ́Ц**, удаўца́, *мн.* удаўцы́, удаўцо́ў, *м.* Мужчына, у якога памерла жонка.

**УДАВЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Жыць удавой або ўдаўцом.

**УДАВІ́ЦЦА** *гл.* давіцца.

**УДАКЛАДНЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* удакладніць. **2.** *мн.* -і, -яў. Думка, падрабязнасць, дэталь, якія ўдакладняюць што-н. *Удакладненні да рэзалюцыі.*

**УДАКЛАДНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* Стаць больш дакладным. *Фармулёўкі ўдакладніліся.* ‖ *незак.* **удакладня́цца**, -я́ецца.

**УДАКЛАДНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніце́, -ня́ць; -ла́днены; *зак., што.* Зрабіць больш дакладным. *У. спісы.* ‖ *незак.* **удакладня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **удакладне́нне**, -я, *н.*

**УДАЛЕ́Ц**, -льца́, *мн.* -льцы́, -льцо́ў, *м.* Смелы, адважны чалавек.

**УДАЛЕЧЫНІ́**, *прысл.* На значнай адлегласці, далёка. *У. цямнее лес.*

**УДАЛЕЧЫНЮ́**, *прысл.* На далёкую адлегласць. *Паглядзець у.*

**УДА́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які завяршаецца ўдачай; удачны, паспяховы. *Удалая паездка.* **2.** Вельмі добры, які адпавядае патрабаванням; правільны. *Выбраць у. ход.* **3.** Здатны на ўсё; спрытны, умелы. *Удалая гаспадыня.* **4.** Смелы, адважны; хвацкі. *У. хлопец.* ‖ *наз.* **уда́ласць**, -і, *ж.*

**УДА́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Моцны рэзкі штуршок, сутыкненне з кім-, чым-н. з сілай. *Гэты гадзіннік не баіцца ўдараў. Нанесці ў. У. электрычнага току.* **2.** Гук (звон, трэск, грукат) ад такога штуршка, а таксама наогул адрывісты гук, стук. *У. гадзінніка. У. грому.* **3.** *перан.* Імклівы напад, атака. *Флангавы ў. Штыкавы ў.* **4.** *перан.* Непрыемнасць, нечаканае гора, бяда. *Перажыць нечаканы ў. У. лёсу.* **5.** Кровазліццё ў мозг; апаплексія. *Апаплексічны ў.* **6.** *чаго.* Пра біццё сэрца, пульсу. ◊ **Пад удар** (ставіць) *каго-што* (разм., неадабр.) — у небяспечнае становішча. **Пад ударам** (быць, знаходзіцца) — у небяспечным становішчы.

**УДА́РНІК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Перадавы работнік вытворчасці. *Ударнікі вытворчасці.* ‖ *ж.* **уда́рніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**УДА́РНІК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Частка затвора вінтоўкі, агнястрэльнай зброі або гарматы, якая разбівае капсуль патрона пры выстрале. **2.** Дэталь у механізме, інструменце, якая ўдарае.

**УДА́РНІК**[3], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на ўдарных інструментах.

**УДА́РНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Звязаны з нанясеннем або атрыманнем удару (у 1 знач.). *У. музычны інструмент* (у якім гук атрымліваецца ў выніку ўдару). *У. механізм. Ударная хваля.* **2.** Які наносіць рашаючы ўдар (у 3 знач.). *У. полк.*

**УДА́РНЫ**[2], -ая, -ае. **1.** Перадавы па выкананні планаў і норм, па прадукцыйнасці працы. *Ударная брыгада. Ударная праца.* **2.** Першачарговы, неадкладны, а таксама прысвечаны вельмі важнай рабоце. *Ударная будоўля.*

**УДА́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* **1.** *аб каго-што* і *чым.* Наткнуўшыся ці сутыкнуўшыся, атрымаць удар (у 1 знач.). *У. аб шула. У. галавой.* **2.** *у што* і *аб што.* У час імклівага руху наскочыць на што-н., сутыкнуцца з чым-н. *Човен ударыўся ў бераг.* **3.** *перан., у што.* Пачаць займацца чым-н. з захапленнем, імкненнем; прыйсці ў які-н. стан. *У. ў навуку. У. ў слёзы.* ‖ *незак.* **удара́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УДА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* **1.** *каго (што) па чым, у што* і *без дап.* Нанесці ўдар (у 1 знач.) каму-н., зрабіць удар аб што-н. *У. палкай. Ударыла токам* (перан.; безас.). *У. кулаком па стале. У. у грудзі.* **2.** *каго-што.* Пашкодзіць, прычыніць боль ударам. *У. калена.* **3.** *што* і *ў што.* Ударамі апавясціць, адзначыць што-н., а таксама ўвогуле раздацца (пра рэзкі гук). *У. трывогу. Ударыў гром.* **4.** *па кім-чым.* Нанесці ўдар (у 3 знач.). *У. знянацку па ворагу.* **5.** *перан., па кім-чым.* Спыніць чые-н. адмоўныя дзеянні, знішчыць што-н. адмоўнае. *У. па бюракратах. У. па недахопах.* **6.** *што, чым* і *без дап.* Пачаць энергічна рабіць што-н., энергічна дзейнічаць чым-н. (разм.). *Музыканты ўдарылі вальс. Матросы ўдарылі вёсламі.* **7.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Раптоўна, з сілай наступіць. *Ударыла засуха. Ударылі маразы.* **8.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан., у што.* Моцна падзейнічаць на што-н. *Віно ўдарыла ў галаву.* ‖ *незак.* **удара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1, 2, 3 і 8 знач.).

**УДАСКАНА́ЛЕННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* удасканаліцца, удасканаліць. **2.** *мн.* -і, -яў. Змена, якая паляпшае, удасканальвае што-н. *Рацыяналізатарскія ўдасканаленні.*

**УДАСКАНА́ЛІЦЦА**, -люся, -лішся, -ліцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць больш дасканалым. *Навыкі ўдасканаліліся.* **2.** *у чым.* Павысіць сваё майстэрства ў якой-н. галіне, свае веды і пад. *У. ў гульні на скрыпцы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Развіцца, стаць вельмі ўспрымальным, вострым (пра пачуцці і пад.). *Густ удасканаліўся.* ‖ *незак.* **удаскана́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *наз.* **удаскана́льванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **удаскана́ленне**, -я, *н.*

**УДАСКАНА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак.* **1.** *каго-што.* Развіць, зрабіць лепшым, больш дасканалым. *У. вытворчы працэс.* **2.** *што.* Зрабіць больш успрымальным, вострым, віртуозным (пачуцці і пад.). *У. музыкальны слых.* ‖ *незак.* **удаскана́львацць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **удаскана́льванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **удаскана́ленне**, -я, *н.*

**УДАСТО́ІЦЦА**, -о́юся, -о́ішся, -о́іцца; *зак., чаго.* **1.** Аказацца дастойным высокай ацэнкі, узнагароды, звання і пад. (кніжн.). *У. прэміі.* **2.** Атрымаць што-н. як знак чыёй-н. увагі. *У. пахвалы.* ‖ *незак.* **удасто́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УДАСТО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак.* **1.** *каго-што чаго.* Узнагародзіць, прызнаць дастойным (кніжн.). *У. урадавай узнагароды. Дзеяч, удастоены ганаровага звання.* **2.** *каго (што) чым.* Аказаць каму-н. гонар сваёй увагай, прыхільнасцю і пад. *У. позіркам. Не ўдастоіць адказам.* ‖ *незак.* **удасто́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УДА́Ў**, уда́ва, *мн.* уда́вы, уда́ваў, *м.* Вялікая драпежная неядавітая змяя трапічных і субтрапічных краін. ‖ *прым.* **уда́вавы**, -ая, -ае. *Сямейства ўдававых* (наз.).

**УДАЎЖКІ́**, *прысл.* У даўжыню. *Лес цягнуўся на некалькі кіламетраў у.*

**УДАЎСТВО́**, -а́, *н.* Бясшлюбны стан удавы, удаўца.

**УДА́ЦЦА**[1], уда́мся, удасі́ся, уда́сца; удадзі́мся, удасцё́ся, ударду́цца; уда́ўся, удала́ся, -ло́ся; уда́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Паспяхова ажыццявіцца, завяршыцца; атрымацца вельмі ўдалым (у 2 і 3 знач.). *Справа ўдалася. Ураджай удаўся. Ростам не ўдалася* (пра чалавека, жывую істоту: не вырас; разм.). **2.** *безас., з інф.* Аказацца магчымым зрабіць што-н., пашчасліўіцца. *Удалося дастаць рэдкую кнігу. Не ўдалося з'ездзіць.* **3.** (часцей у прошлым часе), *у каго.* Урадзіцца, вырасці падобным на каго-н. *Сын удаўся ў бацьку.* ‖ *незак.* **удава́цца**, -е́цца.

**УДА́ЦЦА**[2], уда́мся, удасі́ся, уда́сца; удадзі́мся, удасцё́ся, удаду́цца; уда́ўся, -дала́ся, -ло́ся; уда́йся; *зак., у што.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Урэзацца, зайсці далёка ў глыб чаго-н. *Бераг удаўся ў мора.* **2.** *перан.* Аддацца якому-н. пачуццю, паглыбіцца (у 3 знач.; разм.). *У. ў фантазію.* ‖ *незак.* **удава́цца**, удаюся, удае́шся, удае́цца; удаёмся, удаяце́ся, удаю́цца.

**УДА́ЦЬ**, уда́м, удасі́, уда́сць; удадзі́м, удасце́, удаду́ць; уда́ў, удала́, -ло́; уда́й; уда́дзены; *зак., каго (што)* (разм.). Выдаць, выкрыць каго-н. *Не бойся, я цябе не ўдам.* ‖ *незак.* **удава́ць**, удаю́, удае́ш, удае́; удаём, удаяце́, удаю́ць.

**УДА́ЧА**, -ы, *мн.* -ы, уда́ч, *ж.* Поспех, патрэбны або жаданы зыход справы. *Нечаканая ў. Пажадаць удачы. Ну і ў.!* (таксама перан.: такі ўжо ўрадзіўся, няўдаліца; разм., іран.).

**УДАЧАРЫ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; -ро́ная; *зак., каго (што).* Прыняць у сям'ю (дзяўчынку) на правах роднай дачкі. ‖ *незак.* **удачара́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **удачарэ́нне**, -я, *н.*

**УДА́ЧЛІВЫ**, -ая, -ае. Такі, якому ўсё ўдаецца, справы якога заўсёды завяршаюцца ўдачай. *У. чалавек.* ‖ *наз.* **уда́члівасць**, -і, *ж.*

**УДА́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які паспяхова завяршыўся, удаўся. *Удачная паездка.* **2.** Добры, удалы. *Удачная выпечка хлеба. Удачна* (прысл.) *падабраць колеры.* ‖ *наз.* **уда́чнасць**, -і, *ж.*

**УДВАІ́Х**, *прысл.* Колькасцю ў дзве асобы рознага полу або істоты ніякага роду. *Маці з сынам працуюць у.*

**УДВАЙНЕ́**, *прысл.* У двайным памеры, удвая. *Заплаціць у.*

**УДВАЯ́**, *прысл.* **1.** У два разы. *У. больш.* **2.** У два рады, сагнуўшы папалам. *Ліст паперы складзены ў.*

**УДВО́ІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -о́іцца; *зак.* Павялічыцца ўдвая, падвоіцца. *Насельніцтва горада ўдвоілася.* ‖ *незак.* **удво́йвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **удвае́нне**, -я, *н.*

**УДВО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., што.* Павялічыць удвая, падвоіць. *У. намаганні.* ‖ *незак.* **удво́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **удвае́нне**, -я, *н.*

**УДВУ́Х**, *прысл.* У колькасці двух мужчын. *У. ехаць весялей.*

**УДЖА́ЛІЦЬ** *гл.* джаліць.

**УДЖГНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* (разм.). **1.** *каго.* Балючa ўкалоць хабаткoм, джалам (пра насякомых). **2.** *перан., каго, па чым.* Хвоснуць, ударыць. *У. розгай.*

**УДЗВЮ́Х**, *прысл.* У колькасці дзвюх жанчын. *У. жнецца хутчэй.*

**УДЗЕВЯЦЁХ**, *прысл.* У колькасці дзевяці чалавек (толькі пра мужчын ці толькі пра жанчын).

**УДЗЕВЯЦЯРЫ́Х**, *прысл.* Колькасцю ў дзевяць асоб рознага полу або істот ніякага роду.

**УДЗЕ́Л**[1], -у, *м.* Сумесная дзейнасць пры выкананні чаго-н., супрацоўніцтва ў чым-н. *Прыняць у. у спаборніцтвах. Канцэрт з удзелам вядомых артыстаў эстрады.*

**УДЗЕ́Л**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У старажытнай і сярэдневяковай Русі: вобласць, якой кіраваў князь. ‖ *прым.* **удзе́льны**, -ая, -ае. *У. князь. Удзельнае княства.*

**УДЗЕ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто ўдзельнічае ў чым-н. *У. спаборніцтваў.* ‖ *ж.* **удзе́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**УДЗЕ́ЛЬНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., у чым.* Прымаць удзел у чым-н. *У. у выбарах. У. у баі. У. у мастацкай самадзейнасці.*

**УДЗЕ́ЛЬНЫ**[1], -ая, -ае (кніжн.). Які мае непасрэдныя адносіны, дачыненне да чаго-н. ‖ *наз.* **удзе́льнасць**, -і, *ж.*

**УДЗЕ́ЛЬНЫ**[2] *гл.* удзел[2].

**УДЗЕ́ЛЬНЫ**[3], -ая, -ае (спец.). Які мае адносіны да адзінкі аб'ёму, масы і пад. *У. аб'ём. Удзельная цеплаёмістасць. Удзельная вага* (вага адзінкі аб'ёму рэчыва).

**УДЗЕ́НЬ**, *прысл.* Днём.

**УДЗЕСЯЦЁХ**, *прысл.* У колькасці дзесяці чалавек (толькі пра мужчын ці толькі пра жанчын).

**УДЗЕСЯЦЯРЫ́Х**, *прысл.* Колькасцю ў дзесяць асоб рознага полу або істот ніякага роду.

**УДЗЕСЯЦЯРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́цца; *зак.* Павялічыцца, узмацніцца ў дзесяць разоў, у многа разоў. *Намаганні ўдзесяцярыліся.* ‖ *незак.* **удзесяцяра́цца**, -а́ецца.

**УДЗЕСЯЦЯРЫ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; -ро́ны; *зак., што.* Павялічыць, узмацніць у дзесяць разоў, у многа разоў. *У. сваё багацце. У. намаганні.* ‖ *незак.* **удзесяцяра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УДЗЕЎБАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* і *аднакр.* Ударыць дзюбай, клюнуць.

**УДЗЁЎБВАЦЬ** *гл.* удзяўбці.

**УДЗІРВАНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які ўрос густой травой, пакрыўся дзёрнам. *Удзірванелая зямля.* ‖ *наз.* **удзірване́ласць**, -і, *ж.*

**УДЗІРВАНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* Урасці густой травой, пакрыцца дзёрнам. *Удзірванела мяжа.*

**УДЗЬМУ́ЦЬ**, -му́, -ме́ш, -ме́; -мём, -мяце́, -му́ць; -мі́; -му́ты *і* **УДЗЬМУ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што ў што.* Дзьмучы, увесці ўнутр. *У. паветра куды-н.* ‖ *незак.* **удзіма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УДЗЯЛІ́ЦЬ**, удзялю́, удзе́ліш, удзе́ліць; удзе́лены; *зак., што каму-чаму.* Аддаць, даць, выдзеліўшы з чаго-н. *У. частку гаспадаркі сыну. У. увагу каму-, чаму-н.* ‖ *незак.* **удзяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**УДЗЯЎБЦІ́**, удзяўбу́, удзяўбе́ш, удзяўбе́; удзяўбём, удзеўбяце́, удзяўбу́ць; удзёўб, удзяўбла́, -ло́; удзяўбі́; удзяўба́ны; *зак.* **1.** Часта ўдараючы, разрыхліць, зрабіць паглыбленне ў чым-н. *Зямля так умерзла, што не ў. яе.* **2.** *каго-што.* Тое, што і *удзеўбануць.* **3.** *перан., што ў каго (што)* або *каму* (разм.). Неаднаразова паўтараючы, заставіць цвёрда засвоіць, зразумець што-н.; убіць. *У. сабе ў галаву.* ‖ *незак.* **удзёбваць**, -аю, -аеш, -ае (у 3 знач.).

**УДЗЯ́ЧНАСЦЬ**, -і, *ж.* Пачуццё, якое ўзнікае ў адказ за зробленае дабро, увагу; падзяка. *Прыняць што-н. з удзячнасцю. Словы ўдзячнасці. Зрабіць што-н. у знак удзячнасці* або *ва ў. за што-н.*

**УДЗЯ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адчувае, выказвае ўдзячнасць або прасякнуты ўдзячнасцю. *У. чытач. Я вам вельмі ў. за дапамогу. У. позірк.* **2.** *перан.* Які абяцае добрыя вынікі, плён, які можа апраўдаць затрачаныя сілы, сродкі. *Удзячная праца.*

**УДМУ́РТЫ**, -аў, *адз.* -у́рт, -а, *м.* Народ угра-фінскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Удмурцкай Рэспублікі, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **удму́ртка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **удму́рцкі**, -ая, -ае.

**УДО́ВЫ**, -ая (разм.). Які (якая) з'яўляецца ўдаўцом (удавой).

**УДО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Птушка атрада ракшападобных са стракатым апярэннем, веерападобным чубам і загнутай уніз дзюбай. ‖ *прым.* **удо́давы**, -ая, -ае (спец.). *Сямейства ўдодавых* (наз.).

**УДО́Й**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Колькасць малака, надоенага за адзін раз або за які-н. перыяд часу. *Сутачны ў. Павысіць удоі.* **2.** Тое, што і *даенне. Малако вячэрняга ўдою.* ‖ *прым.* **удо́йны**, -ая, -ае.

**УДО́ЙНАСЦЬ**, -і, *ж.* Тое, што і *малочнасць. Значна павысілася ў. кароў.*

**УДО́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* удой. **2.** З высокай малочнасцю. *Удойныя каровы.*

**УДО́СТАЛЬ**, *прысл.* Да поўнага задавальнення, у дастатковай ступені. *Нагаварыцца ў. У. накарміць.*

**УДО́ЎЖ**, *прыназ. з Р* і *прысл.* У напрамку даўжыні чаго-н. *У. сцен стаяць лавы.* ◊ **Удоўж і ўпоперак** (разм.) — 1) ва ўсіх напрамках; 2) добра, да дробязей. *Ведаць што-н. у. і ўпоперак.*

**УДРУЖЫ́ЦЬ**, -ужу́, -у́жыш, -у́жыць; *зак., каго-што каму* і *без дап.* Аказаць сяброўскую паслугу; узычыць. *Удружы мне, суседка, расады. Вось дык удружыў!* (гаворыцца іранічна ў знач.: зрабіў шкоду, непрыемнасць).

**УДУ́МАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., у што.* Сканцэнтраваўшыся, уважліва абдумаць што-н. *У. ў сэнс слова.* ‖ *незак.* **уду́мвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УДУ́МЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Схільны глыбока мысліць, унікаць у сэнс чаго-н. *У. пісьменнік. Удумліва* (прысл.) *аналізаваць.* **2.** Які выяўляе такую здольнасць. *Удумлівыя вочы.* ‖ *наз.* **уду́млівасць**, -і, *ж.*

**УДУ́ШЛІВАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* удушлівы. **2.** Частае, цяжкае дыханне; удушша.

**УДУ́ШЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які спірае дыханне, робіць яго цяжкім. *Удушлівае паветра.* **2.** Які выклікае ўдушша. *У. газ.* **3.** Такі, як пры ўдушшы. *У. кашаль.* ‖ *наз.* **уду́шлівасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**УДУ́ШША**, -а, *н.* Стан, пры якім спіраецца дыханне ў грудзях, не хапае паветра для дыхання. *Мучае ў.*

**УДУШЫ́ЦЦА**, -ушу́ся, -у́шышся, -у́шыцца; *зак.* (разм.). **1.** Павесіцца. **2.** Памерці ад чаго-н. засеўшага ў горле. ‖ *незак.* **уду́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УДУШЫ́ЦЬ**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Павесіць (разм.). **2.** *каго (што).* Забіць, сціснуўшы горла, задушыць (разм.). **3.** *перан., каго-што.* Задушыць, знішчыць. *Свабоды не ў.* ‖ *наз.* **удушэ́нне**, -я, *н.*

**УДЫГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., перад кім* (разм.). Старацца задобрыць каго-н. лісліваасцю; падлізвацца, паддобрывацца. *Нечага мне перад ім у.* ‖ *наз.* **удыга́нне**, -я, *н.*

**УДЫ́Х**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Асобнае ўдыханне; *проціл.* выдых. *Зрабіць глыбокі ў.*

**УДЫХНУ́ЦЬ**[1], -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., што.* Набраць у лёгкія паветра пры дыханні. *У. свежае паветра.* ‖ *незак.* **удыха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *наз.* **удыха́нне**, -я, *н.*; *прым.* **удыха́льны**, -ая, -ае.

**УДЫХНУ́ЦЬ**[2], -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., што ў каго (што)* (высок.). Абудзіць у кім-н. што-н. (які-н. настрой, думкі і пад.). *У. надзею. У. жыццё ў каго-н.* (абудзіць да дзейнасці).

**УДЭГЕ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* удэге́ец, -ге́йца, *м.* Народнасць, якая жыве на тэрыторыі Прыморскага і Хабараўскага краёў Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **удэге́йка**, -і, *ДМ* -ге́йцы, *мн.* -і, -ге́ек. ‖ *прым.* **удэге́йскі**, -ая, -ае.

**УЕ́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны глыбока пранікаць, уядацца ў што-н. *У. пах. Уедлівая фарба.* **2.** *перан.* Які ўнікае ва ўсе дробязі; прыдзірлівы. *У. чалавек. У. характар.* ‖ *наз.* **уе́длівасць**, -і, *ж.*

**УЕ́ЖНА**, *безас., у знач. вык.* Дастаткова, багата ежы. *Хоць не ў., дык улежна* (хоць не дастаткова яды, затое можна спакойна паляжаць; прыказка).

**УЕ́ЗД**, -а *і* -у, *М* -дзе, *м.* **1.** -у, *гл.* уехаць. **2.** -а, *мн.* -ы, -аў. Месца, праз якое ўязджаюць куды-н. *Пры ўездзе ў вёску.*

**УЕ́СЦІ**, уе́м, уясі́, уе́сць; уядзі́м, уясце́, уяду́ць; уе́ў, уе́ла; уе́ш; *зак.* **1.** *што і без дап.* (пераважна з адмоўем). Пражаваць, з'есці. *Сала такое салёнае, што не ў.* **2.** *перан., каго (што).* Укалоць заўвагай, рэплікай (разм.). ‖ *незак.* **уяда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 2 знач.).

**УЕ́СЦІСЯ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., уе́сца; уяду́цца; уе́ўся, уе́лася; *зак., у што.* Глыбока пранікнуць, упіцца ў што-н. *Вяроўка ўелася ў цела. Пыл уеўся ў скуру.* ‖ *незак.* **уяда́цца**, -а́ецца.

**УЕ́СЦІСЯ**[2], уе́мся, уясі́ся, уе́сца; уядзі́мся, уясце́ся, уяду́цца; уе́ўся, -е́лася; уе́шся; *зак.* (разм.). Прывыкнуць да якой-н. стравы, корму, пачаць добра есці і тлусцець. *Парсюк уеўся, аж уставаць не хоча.* ‖ *незак.* **уяда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УЕ́ХАЦЬ**, уе́ду, уе́дзеш, уе́дзе; уе́дзь; *зак.* **1.** Едучы, трапіць, пранікнуць унутр. *У. у лес.* **2.** Праехаць які-н. шлях (разм.). *За дзень уехалі сто кіламетраў.* **3.** *перан.* Увайсці ў што-н. мяккае, сыпучае; асесці, угрузнуць. *Хата ўехала ў зямлю.* ‖ *незак.* **уязджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **уе́зд**, -у, *м.*; *прым.* **уязны́**, -а́я, -о́е. *Уязная брама.*

**УЖО́**. **1.** *прысл.* Указвае на канчатковасць, завершанасць чаго-н. *Ужо пайшоў. Ты ўжо не маленькая.* **2.** *прысл.* Нарэшце. *Супакойся ты ўжо!* **3.** *часц. узмацн.* Ужыв. для падкрэслівання, акцэнтавання асобнага слова. *Не так ужо дрэнна. Ужо не раз яму казалі.*

**УЖЫВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які часта, шырока ўжываецца; агульнапрыняты. *Ужывальнае слова.* ‖ *наз.* **ужыва́льнасць**, -і, *ж.*

**УЖЫВА́НЫ**, -ая, -ае. Які ўжо быў ва ўжытку. *Ужыванае адзенне.*

**УЖЫВА́ЦЦА**[1] *гл.* ужыцца.

**УЖЫВА́ЦЦА**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* Быць ва ўжыванні, ужывальным. ‖ *наз.* **ужыва́нне**, -я, *н.* *і* **ужы́так**, -тку, *м.* *Увайсці ва ўжыванне (ва ўжытак). Выйсці з ужывання (ужытку).*

**УЖЫВІ́ЦЬ**, -ыўлю́, -ы́віш, -ы́віць; -ы́ўлены; *зак., што* (спец.). Змясціць унутр жывога арганізма часова ці для прыжыўлення. ‖ *незак.* **ужыўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**УЖЫ́ТАК** *гл.* ужывацца[2], ужыць[2].

**УЖЫ́ЎЧЫВЫ**, -ая, -ае. Які ўмее ўжывацца (*гл.* ужыцца ў 1 знач.), ладзіць з другімі або ўласцівы такому чалавеку. *У. чалавек. У. характар.* ‖ *наз.* **ужы́ўчывасць**, -і, *ж.*

**УЖЫ́ЦЦА**, -ыву́ся, -ыве́шся, -ыве́цца; -ывёмся, -ывяце́ся, -ыву́цца; -ы́ўся, -ыла́ся; -ло́ся; *зак.* **1.** *з кім.* Наладзіць згоднае жыццё з кім-н. *Не ўжыўся з суседзямі.* **2.** Прывыкнуць да жыцця дзе-н., у якіх-н. умовах. *Не ў. на чужыне.* **3.** *у што.* Унікшы, асвоіцца з чым-н. *У. ў ролю* (пра акцёра). ‖ *незак.* **ужыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. *Як можа ў адным чалавеку ў. нянавісць і любоў?* (перан.).

**УЖЫ́ЦЬ**[1], -ыву́, -ыве́ш, -ыве́; -ывём, -ывяце́, -ыву́ць; -ы́ў, -ыла́, -ло́; -ыві́; *зак.* (пераважна з адмоўем). Змагчы жыць, пражыць дзе-н., з кім-н.; ужыцца. *Там ніхто не ўжыве.*

**УЖЫ́ЦЬ**[2], -ыву́, -ыве́ш, -ыве́; -ывём, -ывяце́, -ыву́ць; -ы́ў, -ыла́, -ло́; -ыві́; -ы́ты; *зак., што.* Выкарыстаць, прымяніць што-н. для чаго-н. *У. новы метал. У. незразумелае слова. У. што-н. у ежу. У. свае веды.* ‖ *незак.* **ужыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **ужыва́нне**, -я, *н.* *і* **ужы́так**, -тку, *м.* *Рэчы хатняга ўжытку.*

**УЗ...** (а таксама **УЗА...**, **УС...**), *прыстаўка.* **I.** Ужыв. пры ўтварэнні дзеясловаў і абазначае: 1) накіраванасць руху ўверх, напр., *узляцець;* 2) напружанасць, сілу дзеяння, хуткае наступленне якога-н. стану, напр.: *узвіхрыцца, узрасці;* 3) давядзенне дзеяння да якога-н. стану, мяжы, напр.: *узбоўтаць, уз'есціся.* **II.** Ужыв. пры ўтварэнні назоўнікаў і прыслоўяў і абазначае: на краі чаго-н. або побач з чым-н., напр.: *узлесак, узмор'е, узбоч, уздоўж.*

**УЗА...**, *прыстаўка.* Тое, што і *уз...*; ужыв. замест «уз...» перад збегам зычных і перад зычнымі, пасля якіх пішацца мяккі знак або апостраф, напр.: *узабрацца, узаткнуць, узалью, узаб'ю.*

**УЗАБРА́ЦЦА**, узбяру́ся, узбярэ́шся, узбярэ́цца; узбяро́мся, узберацё́ся, узбяру́цца; узабра́ўся, -ра́лася; узбяры́ся; *зак., на каго-што.* Намагаючыся, забрацца наверх. *У. на вал.* ‖ *незак.* **узбіра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УЗАГНА́ЦЬ**, узганю́, узго́ніш, узго́ніць; узагна́ў, -на́ла; узгані́; узагна́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Прымусіць узысці куды-н.; загнаць на што-н. *У. ката на дрэва. У. машыну на платформу.* **2.** *каго.* Прымусіць падняцца адкуль-н., змяніць становішча; успудзіць (разм.). *У. чараду птушак.* **3.** *што на што.* Насадзіць. *У. абручы на бочку.* ‖ *незак.* **узганя́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**УЗА́Д**, *прысл.* Назад, у процілеглы бок. *У. і ўперад. Ні ў. ні ўперад* (ні з месца, ні сюды, ні туды).

**УЗАДРА́ЦЬ**, уздзяру́, уздзярэ́ш, уздзярэ́; уздзяро́м, уздзерацё, уздзяру́ць; узадра́ў, -ра́ла; уздзяры́; узадра́ны; *зак., што.* **1.** Адарваць, аддзяліць рыўком угору што-н. добра прымацаванае і пад. *У. маснічыну.* **2.** Узараць (цаліну, папар і пад.; разм.). *У. дзірван.* ‖ *незак.* **уздзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗАЕМА...** Першая састаўная частка складаных слоў у знач. ўзаемны, напр.: *узаемадапамога, узаемадзеянне, узаемавыгадны.*

**УЗАЕМААБУМО́ЎЛЕНАСЦЬ**, -і, *ж.* Узаемная абумоўленасць; уплыў адных з'яў на другія.

**УЗАЕМААДНО́СІНЫ**, -сін. Узаемныя адносіны паміж кім-н. *Таварыскія ў.*

**УЗАЕМАДАПАМО́ГА**, -і, *ДМ* -мо́зе, *ж.* Узаемная дапамога, дапамога адзін аднаму. *Каса ўзаемадапамогі.*

**УЗАЕМАДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Знаходзіцца ва ўзаемадзеянні.

**УЗАЕМАДЗЕ́ЯННЕ**, -я, *н.* **1.** Узаемная сувязь дзвюх з'яў. *У. попыту і прапановы.* **2.** Узгодненасць дзеянняў, узаемная падтрымка. *У. авіяцыі і танкаў.*

**УЗАЕМАРАЗУМЕ́ННЕ**, -я, *н.* Узаемнае разуменне і згода. *Атмасфера ўзаемаразумення.*

**УЗАЕМАСУ́ВЯЗЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Узаемная сувязь, зносіны.

**УЗАЕ́МНЫ**, -ая, -ае. Які праяўляецца ў адносінах адзін да аднаго. *Узаемнае давер'е. У. ўплыў.* ‖ *наз.* **узае́мнасць**, -і, *ж.*

**УЗАКО́НЕННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* узаконіць. **2.** Пастанова, якая мае сілу закона (уст., афіц.). *Зборнік узаконенняў.*

**УЗАКО́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., што.* Надаць чаму-н. законную сілу. *У. пастанову.* ‖ *незак.* **узако́ньваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **узако́ньванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **узако́ненне**, -я, *н.*

**УЗАМЕ́Н**, *прысл.* *і* *прыназ.* *з Р.* У абмен на што-н., замест. *Атрымаць у. У. бульбы атрымалі буракі.*

**УЗАПХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што на што.* Пхаючы, падняць наверх. *У. воз на ўзгорак.* **2.** *што на каго-што.* З цяжкасцю надзець што-н. вузкае, цеснае або наспех надзець які-н. абутак. *Ледзь узапхнуў боты на ногі.* **3.** *перан., што на каго (што).* Узваліць, абцяжарыць каго-н. чым-н. *Усю работу ўзапхнулі на аднаго.* ‖ *незак.* **успіха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **успі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗАРА́ЦЬ** *гл.* араць.

**УЗАРВА́ЦЦА**, -ву́ся, -ве́шся, -ве́цца; -вёмся, -вяце́ся, -ву́цца; -ві́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Разбурыцца ад узрыву. *Граната ўзарвалася.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Парушыцца (пра цішыню і пад.). *Цішыня ўзарвалася. Зала ўзарвалася ад апладысментаў.* **3.** *перан.* Не стрымаць свайго абурэння, вельмі раззлавацца (разм.). *Ён цярпеў-цярпеў і ўзарваўся.* ‖ *незак.* **узрыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УЗАРВА́ЦЬ**, -ву́, -ве́ш, -ве́; -вём, -вяце́, -ву́ць; -ві́; -ва́ны; *зак.* **1.** *што.* Разбурыць выбухам. *У. пераправу.* **2.** *што.* Уздараць, парушыць цэласць чаго-н. *У. падлогу.* **3.** *перан., што.* Парушыць чым-н. спакой, цішыню і пад. *Гром апладысментаў узарваў цішыню.* **4.** *перан., каго (што);* пераважна *безас.* Абурыць, раззлаваць (разм.). *Гэта несправядлівасць узарвала яго. Ад яго слоў мяне ўзарвала.* ‖ *незак.* **узрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—3 знач.).

**УЗАСО́С.** У выразе: **цалавацца ўзасос** (разм.) — цалавацца вельмі моцна, не адрываючыся.

**УЗАТКНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Насадзіць на што-н. вострае. **2.** *што.* Наспех абуць, усунуць. *У. боты на босыя ногі.* ‖ *незак.* **устыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗАЦЯ́ЖКУ.** У выразе: **курыць узацяжку** — курыць зацягваючыся, удыхаючы ў сябе дым.

**УЗБАГАЦІ́ЦЦА**, -гачу́ся, -гаці́шся, -гаці́цца; -гаці́мся, -гаціце́ся, -гацяцца; *зак.* **1.** Стаць багатым, разбагацець (разм.). **2.** *перан.* Папоўніцца чым-н., стаць больш багатым па саставе, змесце і пад. *Бібліятэка ўзбагацілася новымі выданнямі. У. вопытам.* ‖ *незак.* **узбагача́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **узбагачэ́нне**, -я, *н.*

**УЗБАГАЦІ́ЦЬ**, -гачу́, -гаці́ш, -гаці́ць; -гаці́м, -гаціце́, -гацяць; -га́чаны; *зак., каго-што.* **1.** Зрабіць багатым, заможным. **2.** *перан.* Зрабіць больш багатым, разнастайным па саставе, змесце і пад. *У. сваю памяць.* ‖ *незак.* **узбагача́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **узбагачэ́нне**, -я, *н.*

**УЗБАДЗЁРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* Стаць, зрабіцца бадзёрым, падбадзёрыцца. ‖ *незак.* **узбадзёрвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УЗБАДЗЁРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., каго (што).* Выклікаць бадзёры настрой, прыліў энергіі, падбадзёрыць. *Яго словы мяне ўзбадзёрылі.* ‖ *незак.* **узбадзёрваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗБАЛАМУ́ЦІЦЬ** *гл.* баламуціць.

**УЗБАРАНАВА́ЦЬ** *гл.* баранаваць.

**УЗБЕ́ГЧЫ**, -бягу́, -бяжы́ш, -бяжы́ць; -бяжы́м, -бежыце́, -бягу́ць; -бе́г, -гла; -бяжы́; *зак.* Падняцца бегам куды-н. ‖ *незак.* **узбяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗБЕ́КІ**, -аў, *адз.* -е́к, -а, *м.* Народ, які складае асноўную частку насельніцтва Узбекістана. ‖ *ж.* **узбе́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **узбе́кскі**, -ая, -ае.

**УЗБІВА́ЦЦА** *гл.* узбіцца.

**УЗБІРА́ЦЦА** *гл.* узабрацца.

**УЗБІ́ЦЦА**, узаб'ю́ся, узаб'е́шся, узаб'е́цца; узаб'ёмся, узаб'яце́ся, узаб'ю́цца; узбі́ўся, -бі́лася; узбі́ся; *зак.* **1.** *на каго-што.* Нечакана наскочыць, наткнуцца на каго-, што-н., сутыкнуцца з кім-, чым-н. непажаданым. *У. на камень. У. на засаду.* **2.** *на што.* Натрапіць, напасці на што-н. (разм.). *У. на пашу. У. на капейку* (перан.: разжыцца на грошы; разм.). **3.** *на каго-што.* Узабрацца наверх, насесці, налезці на каго-, што-н. (разм.). *У. з бруднымі нагамі на лаўку.* ‖ *незак.* **узбіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УЗБІ́ЦЬ**, узаб'ю́, узаб'е́ш, узаб'е́; узаб'ём, узаб'яце́, узаб'ю́ць; узбі́ў, -бі́ла; узбі́; узбі́ты; *зак., што.* **1.** Ударам ці ўдарамі насадзіць, накалоць. *У. абруч на бочку. У. вілкі на вожаг.* **2.** Надзець, насунуць на што-н. зверху або з цяжкасцю надзець што-н. вузкае, цеснае (разм.). *Ледзь узбіў паліто на плечы.* **3.** Лёгкімі ўдарамі зрабіць больш рыхлым, пышным, пеністым. *У. падушку. У. смятанку.* **4.** Разбіць яйка на патэльню (разм.). **5.** Паставіць, пакласці, павесіць што-н. на вельмі высокае, нязручнае месца (разм.). *Куды ты ўзбіў гэту скрынку?* ‖ *незак.* **узбіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗБО́ЎТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Боўтаючы, перамяшаць паміж сабой часцінкі якой-н. вадкасці. *У. мікстуру.* ‖ *незак.* **узбо́ўтваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗБО́Ч**, *прысл.* і *прыназ. з Р.* На нейкай адлегласці ад чаго-н., у баку ад чаго-н. *Ён ішоў у. У. насыпу стаяла група людзей.*

**УЗБРАЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* узброіцца, узброіць. **2.** Зброя і боепрыпасы для вядзення вайны, бою. *Новыя віды ўзбраення. Быць* або *знаходзіцца на ўзбраенні* (пра зброю, якой аснашчаны войскі). *Прыняць (узяць) на ў.* (таксама перан.: актыўна выкарыстаць што-н.).

**УЗБРО́ЕНАСЦЬ**, -і, *ж.* Аснашчанасць, наяўнасць неабходных сродкаў для вядзення бою. *Тэхнічная ў. сельскай гаспадаркі* (перан.: аснашчанасць абсталяваннем).

**УЗБРО́ЕНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да барацьбы са зброяй у руках. *У. атрад. Узброенае паўстанне. Узброеныя сілы* (армія, войскі). *У. нейтралітэт* (неўмяшанне ў вайну пры поўнай да яе гатоўнасці).

**УЗБРО́ІЦЦА**, -о́юся, -о́ішся, -о́іцца; *зак.* **1.** Запасціся сродкамі для вядзення вайны, бою (зброяй, тэхнікай і пад.). *У. да зубоў.* **2.** *перан., чым.* Запасціся сродкамі для якой-н. дзейнасці. *У. новай тэорыяй.* ‖ *незак.* **узбро́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **узбрае́нне**, -я, *н.*

**УЗБРО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., каго-што.* **1.** Забяспечыць сродкамі для вядзення вайны, бою (зброяй, тэхнікай і пад.). *У. армію. У. атрад вінтоўкамі.* **2.** *перан., чым.* Забяспечыць сродкамі для якой-н. дзейнасці. *У. гаспадарку навейшай тэхнікай. Узброеным вокам* (пры дапамозе аптычных прылад). ‖ *незак.* **узбро́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **узбрае́нне**, -я, *н.*

**УЗБУДАРА́ЖЫЦЦА** *гл.* бударажыць.

**УЗБУДАРА́ЖЫЦЬ** *гл.* бударажыць.

**УЗБУДЖА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той (тое), хто (што) выклікае, узбуджае што-н. *У. грыпу.*

**УЗБУДЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прыводзіць у стан узбуджэння. *Узбуджальныя сродкі.* **2.** Здольны хутка прыходзіць у стан узбуджэння. *Лёгка ў. чалавек.* ‖ *наз.* **узбуджа́льнасць**, -і, *ж.*

**УЗБУ́ДЖАНАСЦЬ**, -і, *ж.* Стан узбуджэння.

**УЗБУДЗІ́ЦЦА**, -уджу́ся, -у́дзішся, -у́дзіцца; *зак.* **1.** Прачнуцца, абудзіцца. *Дзіця ўзбудзілася ад шуму.* **2.** Прыйсці ў стан нервовага пад'ёму. *Нервы ўзбудзіліся.* ‖ *незак.* **узбуджа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (да 2 знач.) *і* **узбу́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 знач.). ‖ *наз.* **узбуджэ́нне**, -я, *н.* (да 2 знач.).

**УЗБУДЗІ́ЦЬ**, -уджу́, -у́дзіш, -у́дзіць; -у́джаны; *зак.* **1.** *гл.* будзіць. **2.** *каго-што.* Прывесці ва ўзбуджальны стан. *У. хворага. У. нервы.* **3.** *што.* Выклікаць, абудзіць у кім-н. якія-н. пачуцці, думкі, стан. *У. рэўнасць. У. апетыт. У. цікаўнасць.* **4.** *што.* Паставіць, вынесці на абмеркаванне, вырашэнне. *У. крымінальную справу. У. пытанне.* ‖ *незак.* **узбуджа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **узбуджэ́нне**, -я, *н.*

**УЗБУ́ДЛІВЫ**, -ая, -ае (спец.). Здольны рэагаваць на раздражненне. *Узбудлівыя тканкі.* ‖ *наз.* **узбу́длівасць**, -і, *ж.*

**УЗБУЙНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніце́, -ня́ць; узбу́йнены; *зак., што.* Аб'ядноўваючы, зрабіць больш буйны́м (у 1 і 2 знач.). *У. птушкаферму.* ‖ *незак.* **узбуйня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **узбуйне́нне**, -я, *н.*

**УЗБУНТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *зак.* **1.** Падняць бунт, паўстанне. **2.** Прыйсці ў стан непакою, трывогі, узбударажыцца, усхвалявацца. *Ён узбунтаваўся, прачытаўшы такое.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пакрыцца хвалямі, прыйсці ў рух. *Рака ўзбунтавалася.* ‖ *незак.* **узбунто́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 знач.).

**УЗБЯГА́ЦЬ** *гл.* узбегчы.

**УЗБЯРЭ́ЖЖА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Паласа зямлі ўздоўж марскога берага. ‖ *прым.* **узбярэ́жны**, -ая, -ае.

**УЗВАДНЫ́** *гл.* узвод[2].

**УЗВА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Вызначыць вагу каго-, чаго-н. *У. рыбу.* **2.** *перан., што.* Папярэдне абдумаць, ацаніць. *У. усе магчымасці.* ‖ *незак.* **узва́жваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **узва́жыцца**, -жуся, -жышся, -жыцца (да 1 знач.); *незак.* **узва́жвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УЗВАЛАЧЫ́**, -лаку́, -лачэ́ш, -лачэ́; -лачо́м, -лачаце́, -лаку́ць; -ло́к, -лакла́, -ло́; -ло́чаны; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Падняць наверх што-н. цяжкае, груваcткае. *У. мех на воз.* **2.** *каго (што).* З цяжкасцю паставіць на ногі. *У. каня на ногі.* ‖ *незак.* **узвалака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **узвала́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗВАЛАЧЫ́СЯ**, -лаку́ся, -лачэ́шся, -лачэ́цца; -лачо́мся, -лачаце́ся, -лаку́цца; -ло́кся, -лакла́ся, -ло́ся; *зак.* (разм.). **1.** З цяжкасцю ўзысці куды-н. *У. на пагорак.* **2.** З цяжкасцю падняцца, устаць. *У. на ногі.* ‖ *незак.* **узвалака́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **узвала́квацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УЗВАЛІ́ЦЬ**, -алю́, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены; *зак., што на каго-што.* **1.** Падняўшы, наваліць. *У. мех на плечы.* **2.** *перан.* Абцяжарыць каго-н. чым-н., ускласці што-н. на каго-н. (разм.). *У. усю работу на сакратара.* **3.** *перан.* Беспадстаўна абвінаваціць у чым-н. *У. віну на каго-н.* ‖ *незак.* **узва́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗВА́Р**, -у, *м.* Адвар з ягад, траў і пад., а таксама кампот з сушаных фруктаў ці ягад.

**УЗВАРО́ЧВАЦЬ** *гл.* узвярнуць.

**УЗВАРУШЫ́ЦЦА**, -ушу́ся, -у́шышся, -у́шыцца; *зак.* **1.** Пачаць варушыцца, рухацца. *Мурашкі ўзварушыліся.* **2.** *перан.* Выйсці са стану вяласці, расшавяліцца (разм.). *Вяскоўцы ўзварушыліся — пачаўся сенакос.* ‖ *незак.* **узвару́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УЗВАРУШЫ́ЦЬ**, -ушу́, -у́шыш, -у́шыць; -у́шаны; *зак., каго-што.* **1.** Злёгку паварушыць, разварушыць. *У. зямлю вакол дрэва.* **2.** *перан.* Вывесці са стану вяласці, пасіўнасці; расшавяліць, узняць; абудзіць, ажывіць (разм.). *У. народ. У. успаміны.* **3.** *перан.* Выклікаць глыбокія пачуцці, узрушыць (разм.). *Вестка надта ўзварушыла яе.* ‖ *незак.* **узвару́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗВАР'ЯВА́ЦЦА** *гл.* вар'явацца.

**УЗВАР'ЯВА́ЦЬ** *гл.* вар'яваць.

**УЗВЕЛІЧЭ́ННЕ** *гл.* узвялічыць.

**УЗВЕ́СЦІ**, -вяду́, -вядзе́ш, -вядзе́; -вядзём, -ведзяце́, -вяду́ць; -вёў, -вяла́, -ло́, -вядзі́; -ве́дзены; *зак.* **1.** *каго на што.* Ведучы, дапамагчы ўзысці, падняцца наверх чаго-н. *У. дзіця на ганак.* **2.** *што на каго-што.* Узняць (вочы, позірк), паглядзець уверх. *У. вочы на каго-н.* **3.** *што.* Прывесці ў гатовае да выстралу становішча (пра зброю). *У. курок.* **4.** *што.* Збудаваць, паставіць. *У. будынак. У. помнік.* **5.** *перан., каго-што ў што.* Узвысіць да якога-н. стану, звання; надаць чаму-н. іншае ці важнае значэнне. *У. ў ранг заслужанага дзеяча навукі. У. ў абсалют. У. што-н. у закон.* **6.** *перан., што на каго.* Несправядліва прыпісаць каму-н. што-н. *У. паклёп на каго-н.* **7.** *што ў што* (у якую-н. ступень, у квадрат, у куб). Памножыць лік (ці велічыню) сам на сябе столькі разоў, колькі вызначае паказчык ступені. *У. сем у куб.* ‖ *незак.* **узво́дзіць**, -о́джу, -о́дзіш, -о́дзіць. ‖ *наз.* **узвядзе́нне**, -я, *н.* і **узво́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 і 3 знач.).

**УЗВІХРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́цца; *зак.* Закружыцца віхрам. *Узвіхрыўся пыл на дарозе.*

**УЗВІ́ЦЦА**, узаўю́ся, узаўе́шся, узаўе́цца; узаўёмся, узаўяце́ся, узаўю́цца; узві́ўся, -віла́ся, -ло́ся; узві́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Намата́цца. *Ніткі ўзвіліся на шпульку.* **2.** Узляцець увысь, падняўшыся, закруціцца, закружыцца. *Узвіліся галубы. Узвіўся клубок агню.* **3.** *перан.* Прыйсці ў раздражнены стан (разм.). ‖ *незак.* **узвіва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УЗВІ́ЦЬ**, узаўю́, узаўе́ш, узаўе́; узаўём, узаўяце́, узаўю́ць; узві́ў, -віла́, -ло́, узві́; узві́ты; *зак., што.* **1.** Навіць, наматаць на што-н. *У. ніткі на вітушку.* **2.** Падняўшы, закружыць, закруціць. *Вецер узвіў шматкі паперы.* ‖ *незак.* **узвіва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗВО́Д**[1], -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Падраздзяленне роты, эскадрона або батарэі. ‖ *прым.* **узво́дны**, -ая, -ае. *Узводны* (наз.: узводны камандзір).

**УЗВО́Д**[2], -а *і* -у, *М* -дзе, *м.* **1.** -у, *гл.* узвесці. **2.** -а, *мн.* -ы, -аў. Прыстасаванне ва ўдарным механізме зброі, якое дае магчымасць узвесці курок (спец.). *Курок на ўзводзе.* ◊ **На ўзводзе** (разм.) — 1) у стане ап'янення; 2) у стане нервовага ўзбуджэння. ‖ *прым.* **узвадны́**, -а́я, -о́е.

**УЗВО́ДЗІЦЬ** *гл.* узвесці.

**УЗВЫ́СІЦЦА**, -ы́шуся, -ы́сішся, -ы́сіцца; *зак.* **1.** Узняцца ўвысь, падняцца вышэй навакольнага (паэт.). **2.** *перан.* Дасягнуць больш высокага грамадскага становішча, значэння. *Жаданне ў.* ‖ *незак.* **узвыша́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **узвышэ́нне**, -я, *н.*

**УЗВЫ́СІЦЬ**, -ы́шу, -ы́сіш, -ы́сіць; -ы́шаны; *зак., каго-што.* **1.** Узняць увысь, падняць вышэй навакольнага (паэт.). **2.** *перан.* Надаць каму-, чаму-н. больш высокае становішча, значэнне. *У. каго-н. у чыіх-н. вачах.* ◊ **Узвысіць голас** — тое, што і павысіць голас. ‖ *незак.* **узвыша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **узвышэ́нне**, -я, *н.*

**УЗВЫ́ШАНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўзвышаецца над наваколлем; высокі. *Узвышаная мясцовасць.* **2.** *перан.* Поўны глыбокага зместу, значэння, высакародны, які ўзвышаецца над паўсядзённасцю (высок.). *Узвышанае пачуццё.* ‖ *наз.* **узвы́шанасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**УЗВЫША́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *гл.* узвысіцца. **2.** Пра што-н. высокае: стаяць, знаходзіцца дзе-н., вылучаючыся сярод чаго-н. сваёй вышынёй; высіцца. *Уздоўж набярэжнай узвышаліся будынкі.*

**УЗВЫ́ШША**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** Высокая гарыстая або ўзгорыстая мясцовасць. *Мазырскае ў.* **2.** Тое, што і *узвышэнне* (у 2 знач.).

**УЗВЫШЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* узвысіцца, узвысіць. **2.** *мн.* -і, -яў. Узвышанае месца. *Узысці на ў.*

**УЗВЯДЗЕ́ННЕ** *гл.* узвесці.

**УЗВЯЛІ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго-што* (высок.). Паказаць вялікім, значным; праславіць; узнесці. *У. радзіму ў песнях.* ‖ *незак.* **узвялі́чваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **узвялі́чванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **узвелічэ́нне**, -я, *н.*

**УЗВЯРНУ́ЦЬ**, -вярну́, -ве́рнеш, -ве́рне; -вярні́; -ве́рнуты; *зак., што* (разм.). **1.** Ускапаць, узараць, узламаць паверхню чаго-н. *Свінні ўзвярнулі двор. Вецер узвярнуў страху.* **2.** *на каго-што.* Падняўшы, наваліць, узваліць. *У. паклажу на воз, на плечы.* **3.** *перан., на каго.* Прыпісаць каму-н. чужую віну, незаслужана абвінаваціць. *Усю віну ўзвярнулі на стрэлачніка.* ‖ *незак.* **узваро́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗГАДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *зак., каго-што.* Вырасціць, гадуючы, выхоўваючы. *Дзетак у. — не грыбоў назбіраць* (прыказка). *У. сад. У. надзею* (перан.). ‖ *незак.* **узгадо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗГАДНІ́ЦЬ**, -гадню́, -го́дніш, -го́дніць; -го́днены; *зак.* **1.** *што* і *што з чым.* Прывесці ў пэўную адпаведнасць з чым-н. *У. дзеянні. У. гадавы план з дырэктарам.* **2.** *што з кім.* Абмеркаваўшы, выпрацаваць адзіную думку наконт чаго-н., атрымаць згоду на што-н. *У. пытанне з начальствам.* ‖ *незак.* **узгадня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **узгадне́нне**, -я, *н.*

**УЗГАЛО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Месца на пасцелі, куды кладуцца галавой. *Каля ўзгалоўя стаіць тумбачка.*

**УЗГАНЯ́ЦЬ** *гл.* узагнаць.

**УЗГАРЭ́ЦЦА**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; -ры́мся, -рыце́ся, -ра́цца; -ры́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Загарэцца, разгарэцца. *Дровы ўзгарэліся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Нечакана ўзнікнуць, пачацца. *Узгарэлася сварка.* **3.** *перан., чым, без дап.* і *з інф.* Запаліцца якім-н. пачуццём, моцна захацець зрабіць што-н. *У. жаданнем.* ‖ *незак.* **узгара́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **узга́рвацца**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца (да 1 знач.).

**УЗГО́ДНЕНЫ**, -ая, -ае. Такі, у якім дасягнута адзінства, згода (у 2 знач.). *Узгодненае рашэнне.* ‖ *наз.* **узго́дненасць**, -і, *ж.*

**УЗГО́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* Невялікая горка, узвышэнне з пакатымі схіламі; пагорак. *Пясчаны ў.* ‖ *памянш.* **узго́рачак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.*

**УЗГО́Р'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Невялікае ўзвышэнне, узгорак.

**УЗГО́РКАВАТЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *узгорысты.* ‖ *наз.* **узго́ркаватасць**, -і, *ж.*

**УЗГО́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Няроўны, з вялікай колькасцю ўзгоркаў. *У. рэльеф.* ‖ *наз.* **узго́рыстасць**, -і, *ж.*

**УЗГРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; -э́ты; *зак., каго (што)* (разм.). Моцна вылаяць ці набіць за якую-н. правіннасць. ‖ *незак.* **узграва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* і *незак., на каго-што.* Аказаць (аказваць) уздзеянне, паўплываць (уплываць). *У. асабістым прыкладам.*

**УЗДЗЕ́РЦІ**, -дзяру́, -дзярэ́ш, -дзярэ́; -дзяро́м, -дзераце́, -дзяру́ць; -дзёр, -дзёрла; -дзяры́; -дзёрты; *зак., што.* Тое, што і *узадраць.* ‖ *незак.* **уздзіра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗДЗЕ́ЦЬ**, -е́ну, -е́неш, -е́не; -е́нь; -е́ты; *зак., што на каго-што.* **1.** Надзець, нацягнуць (адзенне, абутак і пад.). *У. боты на ногі.* **2.** Павесіць, начапіць, прымацаваць да чаго-н. *У. рукзак на плечы. У. пятлю на крук.* **3.** Насадзіць на вастрыё, стрыжань, праколваючы, надзець на што-н. *У. кола на вось. У. кавалак мяса на відэлец.* ‖ *незак.* **уздзява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗДЗЕ́ЯННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Дзеянне, накіраванае на каго-, што-н. з мэтай дабіцца чаго-н., паўплываць на каго-, што-н. *Быць пад уздзеяннем убачанага.*

**УЗДО́ЎЖ**, *прыназ. з Р* і *прысл.* Тое, што і *удоўж.*

**УЗДРЫ́Г**, -у, *м.* Сутаргавы рух ад моцнага пачуцця; дрыжанне.

**УЗДРЫГНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Уздрыгнуць, здрыгнуцца, задрыжаць. *У. ад нечаканага стуку. Голас уздрыгнуўся ад хвалявання.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Скала-

нуцца, страсянуцца, задрыжаць. *Ад павеву ветру галінкі ўздрыгнуліся.*

**УЗДРЫГНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** Здрыгануцца, задрыжаць. *У. ад нечаканасці. Голас уздрыгнуў.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і *уздрыгнуцца* (у 2 знач.). *Шыбы ўздрыгнулі.* ‖ *незак.* **уздры́гваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗДУ́МАЦЦА**, -аецца; *безас., зак., з інф.* Нечакана прыйсці ў галаву, захацецца. *Уздумалася з'ездзіць да знаёмага.*

**УЗДУ́МАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* **1.** *з інф.* Нечакана, раптам захацець ці вырашыць што-н. зрабіць. *Не ўздумайце ехаць без мяне!* **2.** *каго-што* і *з дадан.* Успомніць, прыпомніць (разм.). *Я ўздумала, што не прынесла яшчэ дроў у хату.* ‖ *незак.* **узду́мваць**, -аю, -аеш, -ае (да 2 знач.).

**УЗДЫ́М**, -у, *м.* **1.** *гл.* узняцца, узняць. **2.** *перан.* Развіццё, рух наперад. *У. навукі.* **3.** *перан.* Натхненне, прыліў энергіі. *Творчы ў. Працаваць з уздымам.*

**УЗДЫМА́ЦЦА** *гл.* узняцца.

**УЗДЫМА́ЦЬ** *гл.* узняць.

**УЗДЫ́Х**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Удых, а за ім і выдах. *Глыбокі ў. Да апошняга ўздыху* (да смерці).

**УЗДЫХА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** Рабіць уздыхі. **2.** *перан., па кім-чым.* Сумаваць, тужыць. *У. па каханай.* ‖ *аднакр.* **уздыхну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (у 1 знач.).

**УЗ'Е́СЦІСЯ**, уз'е́мся, уз'ясі́ся, уз'е́сца; уз'ядзі́мся, уз'ясцёся, уз'яду́цца; уз'е́ўся, -е́лася; уз'е́шся; *зак., на каго-што* (разм., неадабр.). Неўзлюбіўшы, разззлаваўшыся або раздражніўшыся, пачаць папракаць, вінаваціць, лаяць каго-н. *У. на нявестку.* ‖ *незак.* **уз'яда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УЗІ́МКУ**, *прысл.* (разм.). Зімой. *У. гасцінец заносіць снегам.*

**УЗІРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *у каго-што.* Вельмі ўважліва, напружана глядзець куды-н., на каго-, што-н.; углядацца. *У. ў далячынь. У. ў твар.* **2.** *у што.* Разглядаць сябе ў чым-н., глядзецца ў што-н. *У. ў люстэрка.*

**УЗЛАВА́ЦЦА** *гл.* злавацца.

**УЗЛАВА́ЦЬ** *гл.* злаваць.

**УЗЛАЖЫ́ЦЬ**, -лажу́, -ло́жыш, -ло́жыць; -ло́жаны; *зак.* **1.** *каго-што на што.* Палажыць на што-н., паверх чаго-н.; ускласці. *У. бервяно на сані.* **2.** *перан., што на каго-што.* Даручыць што-н. каму-н. *У. адказнасць на брыгадзіраў.*

**УЗЛАМА́ЦЬ**, -ламлю́, -ло́міш, -ло́міць; -ламі́; -лама́ны; *зак., што.* Ломячы, разбіць, адкрыць, развярнуць (што-н. запёртае, цэлае і пад.). *У. дзверы.* ‖ *незак.* **узло́млiваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **узло́мваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **узло́м**, -у, *м. Крадзеж з узломам.*

**УЗЛАХМА́ЦІЦЦА** *гл.* лахмаціцца.

**УЗЛАХМА́ЦІЦЬ** *гл.* лахмаціць.

**УЗЛЕ́ГЧЫ**, -ля́гу, -ля́жаш, -ля́жа; -ля́жам, -ля́жаце, -ля́гуць; -лёг, -ле́гла; -ля́ж; *зак., на каго-што.* Прыхіліўшыся, націснуць тулавам або часткай яго, наваліцца. *У. грудзьмі на стол.* ‖ *незак.* **узляга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗЛЕ́ЗЦІ**, -зу, -зеш, -зе; узлёз, -зла; узлёзь; *зак.* **1.** *на што.* Узабрацца куды-н. высока, на паверхню чаго-н. *У. на слуп.* **2.** *на каго-што.* Пра адзенне, абутак: надзецца, налезці (разм.). *Бот ледзь улез на нагу.* **3.** *на каго-што.* Прыціснуць нагой каго-, што-н., наступіць (разм.). ‖ *незак.* **узла́зіць**, -ла́жу, -ла́зіш, -ла́зіць.

**УЗЛЕ́САК**, -ску, *мн.* -скі, -скаў, *м. і* **УЗЛЕ́ССЕ**, -я, *н.* Край лесу.

**УЗЛЁТ**, -у, *М* -лёце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** *гл.* узляцець. **2.** *перан., чаго.* Уздым, натхненне (высок.). *У. сіл.*

**УЗЛЁТНЫ** *гл.* узляцець.

**УЗЛІВА́ННЕ**, -я, *н.* У старажытнасці: прынясенне віна ў ахвяру багам.

**УЗЛІ́ЦЬ**, узалью́, узалье́ш, узалье́; узальём, узальяце́, узалью́ць *і* -лію́, -ліе́ш, -ліе́; -ліём, -ліяце́, -лію́ць; узлі́ў, -ліла́, -ло́; узлі́; узлі́ты; *зак., што* і *чаго.* Лінуць якую-н. вадкасць на паверхню чаго-н. *У. алей на патэльню.* ‖ *незак.* **узліва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗЛО́М** *гл.* узламаць.

**УЗЛО́МЛІВАЦЬ** *гл.* узламаць.

**УЗЛО́МВАЦЬ** *гл.* узламаць.

**УЗЛО́МШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто ўзломлівае што-н. з мэтай абрабавання.

**УЗЛУ́ШЧЫЦЬ** *гл.* лушчыць.

**УЗЛЯГА́ЦЬ** *гл.* узлегчы.

**УЗЛЯЦЕ́ЦЬ**, -лячу́, -ляці́ш, -ляці́ць; -ляці́м, -леціце́, -ляця́ць; -ляці́; *зак.* Узняўшыся, паляцець. *Самалёт узляцеў. Вераб'і ўзляцелі на страху. У. у паветра* (таксама перан.: узарвацца, разляцецца ад выбуху). ‖ *незак.* **узлята́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **узлёт**, -у, *М* -лёце, *м.; прым.* **узлётны**, -ая, -ае. *Узлётная паласа.*

**УЗМАКРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Які стаў мокрым (звычайна ад поту). *У. лоб.*

**УЗМАКРЭ́ЦЬ** *гл.* макрэць.

**УЗМАСЦІ́ЦЦА**, -машчу́ся, -мо́сцішся, -мо́сціцца; *зак., на што* (разм.). Узабраўшыся, змясціцца. *У. на дах.* ‖ *незак.* **узмо́шчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УЗМАХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак., чым.* Махнуць (з рухам уверх). *У. крыламі.* ‖ *шматкр.* **узма́хваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **узма́х**, -у, *м.*

**УЗМАЦНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўзмацнеў, павялічыўся ў сіле, стаў больш трывалым. *У. вецер. Узмацнелая дружба.* **2.** Які стаў больш здаровым, моцным. *У. падлетак.* **3.** Які атрымаў больш шырокі размах і арганізаванасць. *Узмацнелыя атрады партызан.*

**УЗМАЦНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Узмацніцца, павялічыцца ў сіле, стаць больш трывалым. *Вецер узмацнеў. Голас узмацнеў. Лёд узмацнеў.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць больш моцным (у 6 знач.), умацавацца. *Гаспадарка ўзмацнела.* **3.** Стаць больш здаровым, вынослівым. *За лета дзеці ўзмацнелі.* ‖ *наз.* **узмацне́нне**, -я, *н.*

**УЗМАЦНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -мо́цніцца; *зак.* Стаць мацнейшым. *Вецер узмацніўся. Боль узмацніўся. Атака ўзмацнілася.* ‖ *незак.* **узмацня́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **узмацне́нне**, -я, *н.*

**УЗМАЦНІ́ЦЬ**, -мацню́, -мо́цніш, -мо́цніць; -мо́цнены; *зак., што.* Зрабіць мацнейшым. *У. гук. Артылерыя ўзмацніла агонь. У. выхаваўчую работу.* ‖ *незак.* **узмацня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **узмацне́нне**, -я, *н.*

**УЗМАЦНЯ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прылада для павелічэння магутнасці або напружання чаго-н. *Электрычны ў.*

**УЗМАЦНЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які прызначаны для ўзмацнення, павелічэння чаго-н. *Узмацняльная падстанцыя. Узмацняльнае адценне суфікса.*

**УЗМЕ́ЖАК**, -жка, *мн.* -жкі, -жкаў, *м.* Частка сенажаці, аблогі, якая прымыкае да агарода. *Абкасіць у.*

**УЗМО́Р'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Марское ўзбярэжжа, а таксама мора каля берага. *Жыць на ўзмор'і.*

**УЗМО́ЦНЕНЫ**, -ая, -ае. **1.** Павялічаны, палепшаны. *Узмоцненае харчаванне.* **2.** Надта настойлівы (кніжн.). *Узмоцненыя просьбы.* ‖ *наз.* **узмо́цненасць**, -і, *ж.*

**УЗМО́ШЧВАЦЦА** *гл.* узмасціцца.

**УЗМУЖНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які дасягнуў поўнага фізічнага развіцця, стаў дарослым. *У. хлопец. Узмужнелая постаць.* ‖ *наз.* **узмужне́ласць**, -і, *ж.*

**УЗМУЖНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Дасягнуць поўнага фізічнага развіцця, стаць зусім дарослым. *Юнак узмужнеў.* ‖ *наз.* **узмужне́нне**, -я, *н.*

**УЗМЫ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., каго (што).* Запарыць хуткай яздой (пра каня). ‖ *незак.* **узмы́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗНАВІ́ЦЬ**, -наўлю́, -но́віш, -но́віць; -но́ўлены; *зак., што.* **1.** Стварыць нанава. *У. капітал.* **2.** Аднавіць, адрадзіць разбуранае. *У. горад.* **3.** Пачаць зноў перапыненае. *У. знаёмства.* **4.** Аднавіць, паўтарыць у копіі: творча аднавіць. *У. што-н. у памяці. У. партрэт.* ‖ *незак.* **узнаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **узнаўле́нне**, -я, *н.*

**УЗНАГАРО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ро́д, *ж.* **1.** Плата, дар за якія-н. заслугі і пад. *Грашовая ў.* **2.** Ганаровы знак, ордэн, медаль і пад., якімі адзначаюцца чые-н. заслугі. *Высокая ўрадавая ў.* ‖ *прым.* **узнагаро́дны**, -ая, -ае. *У. ліст.*

**УЗНАГАРО́ДЖАННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* узнагародзіць. **2.** Тое, што і *узнагарода* (у 1 знач.). *Грашовае ў.*

**УЗНАГАРО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго (што) чым.* **1.** Даць ва ўзнагароду што-н. *У. ордэнам. У. артыстаў воплескамі* (перан.). **2.** *перан.* Надзяліць, абдарыць чым-н. (кніжн.). *Прырода ўзнагародзіла яго талентам.* ‖ *незак.* **узнагаро́джваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **узна-**

**гаро́джванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **узнагаро́джанне**, -я, *н.* (да 1 знач.). *Прадставіць да ўзнагароджання.* ‖ *прым.* **узнагаро́дны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Узнагародная грамата. Атрымаць узнагародныя* (наз.).

**УЗНАЎЛЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* узнавіць. **2.** У эканоміцы: пастаяннае паўтарэнне, бесперапыннае аднаўленне працэсу вытворчасці. *Расшыранае ў.* ‖ *прым.* **узнаўле́нчы**, -ая, -ае.

**УЗНАЎЛЯ́ЛЬНІК**, -а *і* -у, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** -а. Той, хто што-н. узнаўляе. **2.** -у. Рэчыва, з дапамогай якога адбываецца рэакцыя ўзнаўлення (саставу, колеру і пад.). *У. для валасоў* (сродак для ўзнаўлення ранейшага колеру).

**УЗНАЧА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; -лены; *зак., што.* Стаць на чале чаго-н., узяць на сябе кіраўніцтва чым-н. *У. дэлегацыю. У. камісію.* ‖ *незак.* **узнача́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЗНЕ́СЦІ**, -нясу́, -нясе́ш, -нясе́; -нясём, -несяце́, -нясу́ць; -нёс, -не́сла; -нясі́; -не́сены; *зак.* **1.** *каго-што.* Падняўшы, занесці наверх. *У. вёдры з вадою на ганак.* **2.** *перан., што.* Узняць угору, ускінуць. *У. смык рукой. У. вочы.* **3.** *што.* Збудаваць. *У. палац.* **4.** *перан., каго (што).* Узвялічыць, узвысіць. *Лёс узнёс гэтага чалавека.* ‖ *незак.* **узно́сіць**, -о́шу, -о́сіш, -о́сіць. ‖ *наз.* **узнясе́нне**, -я, *н.* (да 2—4 знач.).

**УЗНЕ́СЦІСЯ**, -нясу́ся, -нясе́шся, -нясе́цца; -нясёмся, -несяце́ся, -нясу́цца; -нёсся, -не́слася; -нясі́ся; *зак.* **1.** Падняцца ўверх, узляцець. **2.** *перан.* Стаць ганарыстым, фанабэрыстым, пагардлівым (разм.). ‖ *незак.* **узно́сіцца**, -о́шуся, -о́сішся, -о́сіцца. ‖ *наз.* **узнясе́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**УЗНЁСЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Прыўзняты, урачысты. *У. настрой. Узнёслая прамова.* **2.** Поўны вялікага значэння, глыбокага зместу, высакародных пачуццяў. *Узнёслыя мары.* ‖ *наз.* **узнёсласць**, -і, *ж.*

**УЗНІ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; узні́к, -кла; *зак.* Пачацца, стварыцца, зарадзіцца. *Узнікла недавер'е.* ‖ *незак.* **узніка́ць**, -а́ю, -а́еш, -ае. ‖ *наз.* **узнікне́нне**, -я, *н.*

**УЗНО́С**, -у, *м.* **1.** *гл.* узнесці. **2.** *мн.* -ы, -аў. Унесеныя за што-н. грошы. *Прафсаюзныя ўзносы.*

**УЗНО́СІЦЦА** *гл.* узнесціся.

**УЗНО́СІЦЬ** *гл.* узнесці.

**УЗНЯСЕ́ННЕ** *гл.* узнесці, узнесціся.

**УЗНЯ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Радасна-ўсхваляваны, бадзёры. *У. настрой.* **2.** Узвышаны, урачысты (пра мову, стыль). ‖ *наз.* **узня́тасць**, -і, *ж.*

**УЗНЯ́ЦЦА**, -німу́ся, -ні́мешся, -ні́мецца *і* уздыму́ся, уздзы́мешся, уздзы́мецца; -ня́ўся, -няла́ся, -ло́ся; -ні́міся *і* уздымі́ся; *зак.* **1.** Перамясціцца ўверх ці прыняць больш высокае становішча. *У. на гару. У. на сцэну. Рукі ўзняліся. У. па службовай лесвіцы* (перан.: дасягнуць больш высокага грамадскага становішча). **2.** Узвысіцца над кім-, чым-н. *Скалы ўзняліся над вадой. У. над групавымі спрэчкамі* (перан.: стаць вышэй каго-н.). **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). З'явіцца над гарызонтам (пра месяц, воблакі і пад.); распаўсюдзіцца над чым-н. (пра туман, дым і пад.). *Узняўся месяц. Над катлом узнялася пара.* **4.** Тое, што і *падняцца* (у 2 знач.). *У. з ложка.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Узляцець, падняцца ў паветра. *Качкі ўзняліся ў паветра. Самалёт узняўся ў неба.* **6.** *перан., на што.* Пачаць актыўныя дзеянні. *Народ узняўся на барацьбу з ворагам.* **7.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Узнікнуць, пачаць праяўляцца ў дзеянні. *Узнялася паніка. Узняўся пратэст. Узняўся вецер.* **8.** Павялічыцца ў росце; вырасці, стаць дарослым; уздуцца, успучыцца. *Узняліся травы. Узняліся дзеці, пайшлі на свой хлеб. Узнялася шчака.* **9.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Стаць больш высокім, павялічыцца; дасягнуць вышэйшага ўзроўню развіцця. *Узняліся цэны. Узнялася тэмпература. Узняўся настрой* (стаў больш бадзёрым, палепшыўся). **10.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Наладзіцца, палепшыцца, развіцца. *Узнялася гаспадарка.* **11.** *перан.* Раззлавацца, страціць раўнавагу. — *Што вы робіце! — узняўся на дзяцей бацька.* ‖ *незак.* **узніма́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **уздыма́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **узды́м**, -у, *м.* (да 1—7, 9, 10 знач.).

**УЗНЯ́ЦЬ**, -німу́, -ні́меш, -ні́ме *і* уздыму́, узды́меш, узды́ме; -ня́ў, -няла́, -ло́; -ні́мі *і* уздымі́; -ня́ты; *зак.* **1.** *каго-што.* Нагнуўшыся, узяць што-н. (з зямлі, падлогі і пад.). *У. лыжку.* **2.** *каго-што.* Падняць, аддзяліць ад зямлі, маючы дастаткова сілы, каб утрымаць (навісу). *У. бервяно.* **3.** *каго-што.* Падняць уверх, надаць чаму-н. вышэйшае становішча. *У. рукі. У. бровы. У. галаву* (таксама перан.: стаць бадзёрым, смелым). *У. сцяг. У. заслону сцэны.* **4.** *каго-што.* Прымусіць устаць, скрануцца з месца з якой-н. мэтай. *У. полк у атаку. У. з ложка каго-н.* (разбудзіць). *У. мядзведзя з бярлогі* (успудзіць, выгнаць). **5.** *што.* Падняць уверх (пыл, снег і пад.). *Машына ўзняла на дарозе пыл.* **6.** *перан., каго (што) на што.* Натхняючы, схіліць да актыўных дзеянняў. *У. народ на барацьбу.* **7.** *што.* Зрабіць вышэйшым. *У. узровень вады. У. чый-н. аўтарытэт* (перан.: зрабіць больш значным у чыіх-н. вачах). **8.** *перан., што.* Павялічыць, павысіць. *У. прадукцыйнасць працы. У. цэны.* **9.** *перан.* Зрабіць больш актыўным, прыўзнятым, палепшыць. *У. настрой.* **10.** *што.* Наладзіць, палепшыць, развіць. *У. гаспадарку. У. эканоміку.* **11.** *што.* Зрабіць, пачаць дзеянне, названае назоўнікам. *У. плач* (расплакацца). *У. шум. У. трывогу. У. пытанне.* **12.** *што.* Тое, што і *узараць* (спец.). *У. цаліну.* **13.** звычайна *безас., перан., каго.* Узлаваць, вывесці з сябе. *Сказанае чалавека ўзняло.* ‖ *незак.* **узніма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **уздыма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **узня́ццe**, -я, *н.* (да 3, 6, 10—12 знач.), **узды́м**, -у, *м.* (да 2, 3, 6 і 10 знач.), **узніма́нне**, -я, *н.* *і* **уздыма́нне**, -я, *н.*

**УЗО́Р**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Малюнак, у якім спалучаюцца ў пэўным парадку лініі, колеры, фігуры і пад. *У. тканіны. Маляўнічы ў. Ледзяны ў. на акне* (перан.). **2.** *чаго і без дап.* Паказальны або пробны выраб. *Узоры тканіны. У. паперы.* **3.** *чаго і без дап.* Паказальны прыклад чаго-н., што-н. дасканалае, вартае пераймання. *У. мужнасці. У. працавітасці.* **3.** Спосаб канструкцыі, від, форма. *Вінтоўка новага ўзору.* ‖ *прым.* **узо́рны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**УЗО́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* узор. **2.** Які можа служыць прыкладам; дасканалы, паказальны. *У. парадак. Узорная служба. Узорна* (прысл.) *правесці сяўбу.* **3.** Тое, што і *узорысты* (разм.).

**УЗО́РЫСТЫ**, -ая, -ае. Аздоблены ўзорамі, з узорамі. *Узорыстыя ліштвы. Узорыстыя фіранкі.* ‖ *наз.* **узо́рыстасць**, -і, *ж.*

**УЗРА́ДАВАЦЦА** *гл.* радавацца.

**УЗРА́ДАВАЦЬ** *гл.* радаваць.

**УЗРАСЦІ́**, -расту́, -расце́ш, -расце́; -расцём, -расцяце́, -расту́ць; -ро́с, -расла́, -ло́; *зак.* **1.** Вырасці, стаць дарослым; узгадавацца; узышоўшы, вырасці (пра расліны). *Сыны ўзраслі. Край, дзе я ўзрос, вабіць да сябе. Жыта добра ўзрасло.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вырасці, стаць большым, мацнейшым, больш значным. *Сілы ўзраслі. Узрасла актыўнасць. Узрос аўтарытэт арганізацыі.* ‖ *незак.* **узраста́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЗРО́ВЕНЬ**, -ро́ўню, *мн.* -ро́ўні, -ро́ўняў, *м.* **1.** Гарызантальная плоскасць, якая з'яўляецца мяжой вышыні чаго-н. *У. вады ў рацэ. На ўзроўні мора.* **2.** Ступень велічыні, развіцця, значнасці чаго-н. *Жыццёвы ў. У. механізацыі гаспадаркі. На ўзроўні лепшых сусветных стандартаў.* ◊ **На ўзроўні**, *у знач. вык.* (разм.) — адпавядае неабходным патрабаванням. *Лекцыя была на ўзроўні.* ‖ *прым.* **узро́ўневы**, -ая, -ае.

**УЗРО́СТ**, -у, *М* -сце, *м.* **1.** Перыяд, ступень у развіцці, росце чалавека, жывёліны, расліны. *Дзіцячы ў. Сталы ў.* **2.** Колькасць пражытага часу, гадоў. *Жанчына ва ўзросце сарака пяці гадоў.* ‖ *прым.* **узро́сталы**, -ая, -ае. *У. цэнз.*

**УЗРУ́ШАНАСЦЬ**, -і, *ж.* Стан узрушэння.

**УЗРУ́ШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *зак.* Моцна ўсхвалявацца, устрывожыцца. ‖ *незак.* **узру́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **узруша́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **узрушэ́нне**, -я, *н.*

**УЗРУ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак.* **1.** *каго.* Моцна ўсхваляваць, устрывожыць. *Гэта падзея ўзрушыла ўсіх.* **2.** *што.* Узрыхліць, узварушыць паверхню чаго-н. (разм.). *У. зямлю на градах. Вецер узрушыў паверхню возера.* ‖ *незак.* **узруша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **узру́шваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **узрушэ́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**УЗРЫВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Механізм, які выклікае выбух зарада ў міне, артылерыйскім снарадзе, ракеце, авіябомбе, тарпедзе і пад.

**УЗРЫВА́ЦЦА** *гл.* узарвацца.

**УЗРЫВА́ЦЬ**[1] *гл.* узрыць.

**УЗРЫВА́ЦЬ**[2] *гл.* узарваць.

**УЗРЫ́Ў**, -ы́ву, *мн.* -ы́вы, -ы́ваў, *м.* **1.** Імгненны распад рэчыва, які суправаджаецца ўтварэннем моцна нагрэтых, з высокім ціскам газаў, а таксама гук, які ўзнікае пры такім разбурэнні; выбух. *У. газаў. У. бомбы.* **2.** Разбурэнне чаго-н., зробленае пры дапамозе такога распаду рэчываў. *У. скалы.* **3.** *перан., чаго.* Раптоўнае бурнае праяўленне чаго-н. *У. смеху.*

**УЗРЫЎНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Спецыяліст па ўзрыўных работах.

**УЗРЫЎНЫ́**, -а́я, -о́е. Які служыць для ўзрывання, узрыву (у 1 і 2 знач.); які з'яўляецца вынікам узрыву. *Узрыўныя работы. Узрыўная хваля.*

**УЗРЫЎЧА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* (разм.). Выбуховае рэчыва.

**УЗРЫХЛЕ́ННЕ** *гл.* рыхліць.

**УЗРЫХЛІ́ЦЬ** *гл.* рыхліць.

**УЗРЫХЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., што.* Тое, што і *рыхліць.*

**УЗРЫ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́е; -ы́ты; *зак., што.* Разрыць лычом (пра жывёл). *У. зямлю.* ‖ *незак.* **узрыва́ць**, -а́е.

**УЗУРПА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто незаконна захапіў, узурпіраваў уладу, якія-н. правы. ‖ *прым.* **узурпа́тарскі**, -ая, -ае.

**УЗУРПІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Учыніць (учыняць) незаконны захоп, прысваенне чаго-н. (улады, правоў). ‖ *наз.* **узурпа́цыя**, -ыі, *ж.*

**У́ЗУС**, -у, *м.* (кніжн.). Тое, што прынята, што стала звычайным, звычка. *Моўны у.* (ужыванне слоў, форм, што замацавалася ў мове). ‖ *прым.* **узуа́льны**, -ая, -ае.

**УЗЫСЦІ́**, -ыду́, -ы́дзеш, -ы́дзе; -ышо́ў, -шла́, -ло́; -ыдзі́; *зак.* **1.** Ідучы, падняцца наверх. *У. на ўзгорак. У. на другі паверх.* **2.** Ступіць, уз'ехаць на паверхню чаго-н. або ўвайсці, уехаць куды-н. *У. на кладку. Цягнік узышоў на мост. У. на двор.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра нябесныя свяцілы: узняцца над гарызонтам. *Сонца ўзышло.* **4.** Прарасціўшы, паказацца на паверхні глебы (пра пасеянае). *Лубін густа ўзышоў.* ‖ *незак.* **узыхо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць *і* **усхо́дзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць (да 1 знач.). ‖ *наз.* **узыхо́д**, -у, *М* -дзе, *м.* (да 1 і 3 знач.) *і* **узыхо́джанне**, -я, *н.* (да 1 і 4 знач.).

**УЗЫХО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* **1.** *гл.* узысці. **2.** *да чаго.* Весці свой пачатак, паходжанне ад чаго-н. *Сучасны беларускі алфавіт узыходзіць да стараславянскай азбукі.*

**УЗЫ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак., што* (разм.). Тое, што і *удружыць.*

**УЗ'Ю́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* (разм.). Стаць узбуджаным, гуллівым.

**УЗ'Ю́ШАНЫ**, -ая, -ае (разм.). Вельмі разгневаны, раз'юшаны. ‖ *наз.* **уз'ю́шанасць**, -і, *ж.*

**УЗ'Ю́ШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *зак.* (разм.). Вельмі разгневацца, разззлавацца. ‖ *наз.* **уз'юшэ́нне**, -я, *н.*

**УЗ'ЯДА́ЦЦА** *гл.* уз'есціся.

**УЗ'ЯДНА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *зак.* (высок. *і* афіц.). Аб'яднацца зноў. ‖ *незак.* **уз'ядно́ўвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **уз'ядна́нне**, -я, *н.*

**УЗ'ЯДНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што з чым* (высок. *і* афіц.). Аб'яднаць зноў. ‖ *незак.* **уз'ядно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уз'ядна́нне**, -я, *н.*

**УЗЯ́ЦЦА** *гл.* брацца.

**УЗЯ́ЦЦЕ** *гл.* браць.

**УЗЯ́ЦЬ**, вазьму́, во́зьмеш, во́зьме; узя́ў, узяла́, -ло́; вазьмі́; узя́ты; *зак.* **1.** *гл.* браць. **2.** *каго (што).* Арыштаваць (разм.). **3.** Ужыв. ў спалучэнні са злучнікамі «ды» і «дый» або «ды і» і іншым дзеясловам пры абазначэнні нечаканага, раптоўнага дзеяння (разм.). *А я вазьму ды (дый) скажу. Узяў ды і кінуў усё тут. У. і (ды, дый) паехаць.* **4.** Загадны лад і інфінітыў, звычайна ў спалучэнні з «хоць», «хоць бы», ужыв. пры прапанове звярнуць на што-н. увагу (разм.). *Вазьміце* (або *ўзяць*) *хоць бы гэты выпадак.*

**УЙГУ́РЫ**, -аў, *адз.* уйгу́р, -а, *м.* Народ, які жыве на тэрыторыі Кітая, у Казахстане, Кыргызстане, Узбекістане, Афганістане. ‖ *ж.* **уйгу́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **уйгу́рскі**, -ая, -ае.

**УКА́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пастанова вярхоўнага органа ўлады, якая мае сілу закона. *У. Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.* **2.** *у знач. вык., каму,* звычайна з адмоўем. Аўтарытэт, узор для пераймання, указчык (разм.). *Ты мне тут не ў.*

**УКАЗА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які ўказвае на што-н. або выражае ўказанне. *Указальныя знакі. У. займеннік.* ◊ **Указальны палец** — другі палец на руцэ паміж вялікім і сярэднім.

**УКАЗА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* указаць. **2.** Службовае распараджэнне, загад; настаўленне, парада, што і як трэба рабіць. *Метадычныя ўказанні.*

**УКАЗА́ЦЬ**, укажу́, ука́жаш, ука́жа; укажы́; ука́заны; *зак.* **1.** *з дадан.* Даць указанне, настаўленне. *У., як весці работу.* **2.** *на што.* Адзначыўшы што-н., звярнуць на яго ўвагу. *У. на памылкі.* **3.** *што.* Паказаць, назваць для ведама, кіраўніцтва. *У. лепшы метад.* **4.** *каму на каго-што.* Тое, што і *паказаць* (у 2 знач.). *У. месцазнаходжанне друкарні.* ‖ *незак.* **ука́зваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **указа́нне**, -я, *н.*

**УКА́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* **1.** Палачка, якой паказваюць што-н. *Вадзіць указкай па карце.* **2.** Указанне, распараджэнне (разм., неадабр.). *Без вашых указак абыдуся.*

**УКА́ЗЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто ўказвае іншым, што і як трэба рабіць. *Ён нам не ў. Бач, які ў. знайшоўся.* ‖ *ж.* **ука́зчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**УКАКО́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., каго (што)* (разм., груб.). Забіць, пазбавіць жыцця. *Гэта ён у час вайны паліцая ўкакошыў.*

**УКАЛО́ЦЬ**, укалю́, уко́леш, уко́ле; укалі́; уко́латы; *зак.* **1.** *каго-што.* Параніць, уваткнуўшы ў цела тонкі, востры канец чаго-н. *У. руку шпількай.* **2.** *перан., каго (што).* Пакрыўдзіць, абразіць, даняць. *Заўвага балюча ўкалола яго.* **3.** *што ў што.* Уваткнуць, пракалоўшы, прымусіць увайсці ўнутр чаго-н. (разм.). *У. пруток у клубок.* ‖ *незак.* **уко́лваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **укало́цца**, укалю́ся, уко́лешся, уко́лецца (да 1 знач.); *незак.* **уко́лвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **уко́л**, -у, *м.*

**УКАЛЫХА́ЦЬ**, -ышу́, -ы́шаш, -ы́ша; -ышы́; -ыха́ны; *зак., каго (што).* Калышучы, давесці да дрымоты. *У. дзіця.* ‖ *незак.* **укалы́хваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **укалы́хванне**, -я, *н.*

**УКАМПЛЕКТАВА́ЦЬ** *гл.* камплектаваць.

**УКАПА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., у што.* Капаючы, углыбіцца ў што-н.; выкапаць укрыцце. *Пяхота ўкапалася ў зямлю.* ‖ *незак.* **уко́пвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УКАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны *і* уко́паны; *зак.* **1.** *што ў што.* Умацаваць у выкапаным паглыбленні. *У. слупы. Як укапаны (укопаны) стаіць* (зусім нерухома). **2.** пераважна з адмоўем, *чаго* і *без дап.* Змагчы ўскапаць што-н. *Зямля такая цвёрдая, рыдлёўкай не ўкапаеш.* **3.** *што* і *чаго.* Накапаць, выкапаць невялікую колькасць чаго-н. (разм.). *У. крыху бульбы.* ‖ *незак.* **уко́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УКАРАНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які пусціў глыбока карэнне. **2.** *перан.* Які трывала замацаваўся дзе-н., усталяваўся (пра погляды, звычкі). *Укаранелыя звычкі.*

**УКАРАНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -е́е; *зак.* (разм.). Тое, што і *укараніцца* (у 1 і 2 знач.).

**УКАРАНІ́ЦЦА**, -ранюся, -рэ́нішся, -рэ́ніцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пусціць глыбока карэнне, добра ўрасці ў зямлю. *Укараніўся пырнік у агародзе.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Трывала замацавацца, усталявацца. *Укаранілася такая звычка.* **3.** Абсталявацца дзе-н., умацаваць сваё становішча. *У. на новым месцы.* ‖ *незак.* **укараня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **укараненне**, -я, *н.*

**УКАРАНІ́ЦЬ**, -раню́, -рэ́ніш, -рэ́ніць; -ранёны; *зак., што.* **1.** Пасадзіўшы, даць умацавацца ў глебе каранямі. **2.** *перан.* Садзейнічаць трываламу замацаванню чаго-н. у практыцы; прымусіць увайсці ў быт, свядомасць і пад. *У. гаспадарчы разлік. У. новы метад у вытворчасць.* ‖ *незак.* **укараня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **укарэне́нне**, -я, *н.*

**УКАРАЦІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ро́ціцца; *зак.* Стаць карацейшым (у 1 і 3 знач.). *Цень укараціўся. З надыходам зімы дні ўкараціліся.* ‖ *незак.* **укаро́чвацца**, -аецца. ‖ *наз.* **укарачэ́нне**, -я, *н.*

**УКАРАЦІ́ЦЬ**, -рачу́, -ро́ціш, -ро́ціць; -ро́чаны; *зак., што.* Зрабіць карацейшым

(у 1 і 3 знач.). *У. рукавы. У. тэрмін.* ‖ *незак.* **укаро́чваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **укарачэ́нне**, -я, *н.*

**УКАРМІ́ЦЬ**, укармлю́, уко́рміш, уко́рміць; уко́рмлены; *зак.* **1.** *каго (што).* Зрабіць сытым; адкарміць. *У. парсюка.* **2.** *каго-што.* Пракарміць (разм.). *У. сям'ю.* ‖ *незак.* **уко́рмліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **укармі́цца**, 1 і 2 ас. не ўжыв., уко́рміцца (да 1 знач.); *незак.* **уко́рмлівацца**, -аецца.

**УКАЦІ́ЦЦА**, укачу́ся, уко́цішся, уко́ціцца; *зак., у што.* Коцячыся, апынуцца ўнутры чаго-н., увайсці, уехаць. *Мяч укаціўся ў вароты.* ‖ *незак.* **уко́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УКАЦІ́ЦЬ**, укачу́, уко́ціш, уко́ціць; уко́чаны; *зак.* **1.** *што ў што.* Коцячы, упхнуць. *У. калёсы ў гумно.* **2.** *перан., што каму.* Зрабіць, учыніць што-н. непрыемнае (разм.). *У. вымову прагульшчыку* (аб'явіць у загадзе). **3.** Уехаць куды-н. (разм.). *У. у двор на кані.* ‖ *незак.* **уко́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УКАЧА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., у што.* Выкачацца, запэцкацца ў што-н. *У. ў гразь.* ‖ *незак.* **ука́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УКАЧА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што ў што.* Выкачаць, запэцкаць у што-н.; качаючы, пакрыць чым-н. сыпкім. *У. каго-н. у снег. У. у муку рыбу.* **2.** *што.* Качаючыся, прымяць. *Коні ўкачалі траву на прыгуменні.* ‖ *незак.* **ука́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УКВЭ́ЦАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што* (разм.). Умазаць, упэцкаць. *У. рукаў у фарбу.* ‖ *звар.* **уквэ́цацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УКЕ́МІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; *зак., што* і *з дадан.* (разм.). Уцяміць, зразумець. *Ніяк не мог у., што тут да чаго.*

**УКІ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -нься; *зак.* **1.** *у што.* Імкліва кінуцца куды-н., скочыць у што-н. *У. на хаду ў калёсы.* **2.** *у што.* Уваліцца куды-н., падаючы ўніз (разм.). *У. ў канаву.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Нечакана ўзнікнуць, паявіцца. *Укінулася хвароба.* ‖ *незак.* **укі́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 2 знач.).

**УКІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; укі́нь; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што ў што.* Кінуць, апусціць унутр. *У. камень у ваду.* **2.** *чаго ў што* або *каму.* Налажыць, дабавіць чаго-н. у што-н.; даць корму. *У. два драбкі цукру ў чай. У. сена коням* (разм.). ‖ *незак.* **укіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **укі́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **укіда́нне**, -я, *н. і* **укі́дванне**, -я, *н.*

**УКІ́СЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў кіслым, укіс. *Укіслае цеста.*

**УКІ́СНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; укі́с, -сла; *зак.* Стаць кіслым, набыць неабходную кіслату. *Рошчына ўкісла.* ‖ *незак.* **укіса́ць**, -а́е. ‖ *наз.* **укіса́нне**, -я, *н.*

**УКЛА́Д**[1], -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Устаноўлены або ўсталяваны парадак, лад (грамадскага жыцця, побыту і пад.). *Новы ў. жыцця. Гаспадарчы ў.*

**УКЛА́Д**[2], -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Укладзеная куды-н. сума грошай. *Выдача ўкладаў у банках.* **2.** *перан.* Значнае дасягненне ў галіне навукі, культуры і пад. *Працоўны ў.*

**УКЛАДА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто ўкладае (*гл.* укласці[2]) што-н. *У. слоўніка. У. хрэстаматыі* (аўтар, які падбірае тэксты). ‖ *ж.* **уклада́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **уклада́льніцкі**, -ая, -ае.

**УКЛАДА́ННЕ**[1], -я, *н.* **1.** *гл.* укласці[1]. **2.** *мн.* -і, -яў. Укладзеная сума грошай; укладзены прадмет. *Капітальныя ўкладанні. Бандэроль з цэнным укладаннем.*

**УКЛАДА́ННЕ**[2] *гл.* укласці[2].

**УКЛАДА́ЦЦА**[1] *гл.* укласціся.

**УКЛАДА́ЦЦА**[2] *гл.* улажыцца.

**УКЛАДА́ЦЦА**[3] *гл.* улегчыся.

**УКЛАДА́ЦЬ**[1] *гл.* укласці.

**УКЛАДА́ЦЬ**[2] *гл.* улажыць.

**УКЛА́ДАЧНЫ**, -ая, -ае. Які прызначаны, служыць для ўкладкі (у 1 знач.). *Укладачная машына.*

**УКЛА́ДВАННЕ** *гл.* укласці, улажыць.

**УКЛА́ДВАЦЦА**[1] *гл.* укласціся.

**УКЛА́ДВАЦЦА**[2] *гл.* улажыцца.

**УКЛА́ДВАЦЦА**[3] *гл.* улегчыся.

**УКЛА́ДВАЦЬ**[1] *гл.* укласці.

**УКЛА́ДВАЦЬ**[2] *гл.* улажыць.

**УКЛА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* **1.** *гл.* укласці[1]. **2.** *мн.* -і, -дак. Тое, што складзена, укладзена ў пэўным парадку. *Прыгожая ў. валасоў.*

**УКЛАДНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Здольны ўкладвацца, зроблены для ўкладкі (у 1 знач.). *Стол з укладнымі дошкамі. У. ліст.* **2.** Які мае адносіны да ўкладання грошай, укладу[2] (у 1 знач.). *Укладныя аперацыі.*

**УКЛА́ДЧЫК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Уладальнік грашовага ўкладу. ‖ *ж.* **укла́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**УКЛА́ДЧЫК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца ўкладваннем, укладкай чаго-н. *У. рэек.* ‖ *ж.* **укла́дчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**УКЛА́ДЫШ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што ўкладзена ў што-н. (напр., укладны ліст, кавалак чаго-н. і пад.).

**УКЛА́СЦІ**[1], -ладу́, -ладзе́ш, -ладзе́; -ладзём, -ладзяце́, -ладу́ць; -ла́ў, -ла́ла; -ладзі́; -ла́дзены; *зак.* **1.** *каго (што).* Прымусіць легчы, надаць каму-н. ляжачае становішча. *У. ў ложак. У. спаць.* **2.** *што чым.* Пакрыць чым-н. на якой-н. прасторы. *У. дарожку каменнем.* **3.** *што.* Палажыць у пэўным парадку. *У. рэйкі. У. снапы на таку ў адзін рад. У. валасы* (зрабіць прычоску). **4.** *што ў што.* Палажыць, змясціць унутр. *У. пісьмо ў канверт. У. душу ў што-н.* (перан.). **5.** *што ў што.* Змясціць у якое-н. прадпрыемства (сродкі, грошы). *У. капітал у цяжкую прамысловасць.* **6.** *перан., каго (што).* Тое, што і *забіць* (у 1 знач.; разм.). *У. звера на месцы.* ‖ *незак.* **уклада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—5 знач.) *і* **укла́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уклада́нне**, -я, *н.* (да 1—5 знач.), **укла́дванне**, -я, *н. і* **укла́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 3 знач.).

**УКЛА́СЦІ**[2], -ладу́, -ладзе́ш, -ладзе́; -ладзём, -ладзяце́, -ладу́ць; -ла́ў, -ла́ла; -ладзі́; -ла́дзены; *зак., што.* Стварыць, напісаць што-н., падабраўшы і аб'яднаўшы якія-н. матэрыялы. *У. слоўнік. У. зборнік практыкаванняў.* ‖ *незак.* **уклада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **уклада́нне**, -я, *н.*

**УКЛА́СЦІСЯ**, -ладу́ся, -ладзе́шся, -ладзе́цца; -ладзёмся, -ладзяце́ся, -ладу́цца; -ла́ўся, -ла́лася; -ладзі́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Умясціцца ў што-н. *Усе рэчы ўклаліся ў чамадан.* **2.** *перан., у што.* Падысці пад якую-н. катэгорыю, класіфікацыю (кніжн.). *У. ў інструкцыю.* **3.** *перан.* Паспець зрабіць што-н. у пэўны тэрмін. *У. ў рэгламент.* **4.** Легчы (спаць), улегчыся (разм.). *У. на канапе.* ◊ **Укласціся ў галаве** або **у свядомасці** (разм.) — дайсці да свядомасці, стаць зразумелым. ‖ *незак.* **уклада́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **укла́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца. *У галаве (у свядомасці) не ўкладваецца што-н.* (немагчыма дапусціць, паверыць у што-н.).

**УКЛЕ́ІЦЬ**, -е́ю, -е́іш, -е́іць; -е́ены; *зак.* **1.** *што ў што.* Уставіць, замацаваўшы клеем. *У. карту ў кнігу.* **2.** *што чым.* Заклеіць скрозь што-н. *У. сцяну плакатамі.* **3.** *перан., чым* і *без дап.* Нанесці ўдар, адлупцаваць (разм.). *У. пугай.* ‖ *незак.* **укле́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **укле́йванне**, -я, *н. і* **укле́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.*

**УКЛЕ́НЧАНЫ**, -ая, -ае. Які стаіць на каленках у час малення.

**УКЛЕ́НЧВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *кленчыць* (у 1 знач.).

**УКЛЕ́НЧЫЦЬ** *гл.* кленчыць.

**УКЛІНІ́ЦЦА**, -ню́ся, -ні́шся, -ні́цца; -ні́мся, -ніце́ся, -ня́цца; *зак., у што.* Увайсці, удацца клінам. *У. ў размяшчэнне праціўніка* (перан.). ‖ *незак.* **уклі́ньвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УКЛІНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніце́, -ня́ць; -лі́нены; *зак., што ў што.* Урабіць, уставіць клінам. *У. дошку ў шчыліну.* ‖ *незак.* **уклі́ньваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УКЛЮЧА́ЮЧЫ**, *прыназ. з Р.* У тым ліку і..., разам з кім-, чым-н. *Сабраліся ўсе, у. малых.*

**УКЛЮ́ЧНА**, *прысл.* Разам з апошнім названым прадметам. *Па 15-е ліпеня ў.*

**УКЛЮ́ЧЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -чын, *ж.* Прыстасаванне для замацавання вясла на борце лодкі. *Жалезная ў.*

**УКЛЮЧЫ́ЦЦА**, -ючу́ся, -ю́чышся, -ю́чыцца; *зак., у што.* Далучыцца да чаго-н.; стаць удзельнікам чаго-н. *Станок уключаўся аўтаматычна. У. ў размову.* ‖ *незак.* **уключа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **уключэ́нне**, -я, *н.*

**УКЛЮЧЫ́ЦЬ**, -ючу́, -ю́чыш, -ю́чыць; -ю́чаны; *зак.* **1.** *каго-што ў што.* Увесці, унесці ў склад, лік каго-, чаго-н. *У. у спіс навучэнцаў. У. соль у рацыён жывёлы.* **2.** *што ў што.* Далучыць да сістэмы чаго-н. *У. апарат у сетку.* **3.** *што.* Прывесці ў дзе-

янне. *У. станок. Уключы святло!* || *незак.* **уключа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **уключэ́нне**, -я, *н.*

**УКО́Л**, -у, *м.* **1.** *гл.* укалоць. **2.** *мн.* -ы, -аў. Тое, што і *ін'екцыя. Зрабіць у. хвораму.*

**УКО́ЛВАЦЦА** *гл.* укалоць.

**УКО́ЛВАЦЬ** *гл.* укалоць.

**УКО́ПВАЦЦА** *гл.* укапацца.

**УКО́ПВАЦЬ** *гл.* укапаць.

**УКО́РМЛЕНЫ**, -ая, -ае. Сыты, адкормлены. *Укормленая свіння.* || *наз.* **уко́рмленасць**, -і, *ж. Мяса сярэдняй укормленасці.*

**УКО́РМЛІВАЦЦА** *гл.* укарміць.

**УКО́РМЛІВАЦЬ** *гл.* укарміць.

**УКО́С**, -у, *м.* **1.** Касьба, кашэнне. **2.** *мн.* -ы, -аў. Колькасць скошанай травы, сена. *Першы ў. Вялікі ў.*

**УКО́ЧВАЦЦА** *гл.* укаціцца.

**УКО́ЧВАЦЬ** *гл.* укаціць.

**УКРАІ́НЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Усходнеславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Украіны. || *ж.* **украі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **украі́нскі**, -ая, -ае.

**УКРА́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* **1.** Пырскаючы, зрабіць крапіны ў чым-н. (спец.). **2.** (часцей у форме дзеепрыметніка залежнага стану), *перан.* Унесці, уключыць у склад чаго-н. як устаўку, дадатак да асноўнага. *У лесастэпе сярод стэпавай расліннасці ўкрапаны невялікія ляскі.* || *незак.* **укра́пваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **укра́пванне**, -я, *н.*

**УКРА́СА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́с, *ж.* **1.** Прадмет, прызначаны для ўпрыгожвання каго-, чаго-н. *Абновы і ўкрасы.* **2.** *перан., чаго.* Тое (той), што (хто) з'яўляецца гордасцю, упрыгожвае што-н. *Дубовы гай — у. наваколля. Гэты студэнт — у. курса.*

**УКРА́СЦІ** *гл.* красці.

**УКРА́СЦІСЯ**, -ра́дуся, -ра́дзешся, -ра́дзецца; -ра́ўся, -ра́лася; *зак., у што.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Выпадкова з'явіўшыся, застацца незаўважаным. *У тэкст укралася памылка.* **2.** Непрыкметна з'явіцца дзе-н., пранікнуць куды-н. *У душу ўкраўся страх.* || *незак.* **укра́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УКРУГАВУ́Ю**, *прысл.* У кругавым напрамку. *Чарка пайшла ў.*

**УКРУТУ́Ю**, *прысл.* Крута, да цвёрдага стану (пра спосаб варкі яек). *Яйкі варылі ў.*

**УКРУЦІ́ЦЦА**, -ручу́ся, -ру́цішся, -ру́ціцца; *зак., у што.* **1.** Захутацца ў што-н., абматацца чым-н. *У. ў коўдру.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Круцячыся, наматацца на што-н. *Лейцы ўкруціліся ў кола.* || *незак.* **укру́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УКРУЦІ́ЦЬ**, -ручу́, -ру́ціш, -ру́ціць; -ру́чаны; *зак.* **1.** *што ў што.* Круцячы, уставіць. *У. лямпачку ў патрон.* **2.** *каго-што ў што.* Захутаць, завінуць. *У. дзіця ў коўдру. У. каўбасу ў паперу.* **3.** *што.* Убавіць, прыкруціць што-н. *У. кнот у лямпе.* **4.** *што ў што.* Уматаць у што-н. *У. канец вяроўкі ў кола.* **5.** *што.* Махлюючы, прысвоіць, не аддаць чаго-н. узятага, пазычанага (разм.). *У. дваццаць пяць рублёў.* || *незак.* **укру́чваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УКРЫВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто займаецца ўкрывальніцтвам. *У. крадзенага.* || *ж.* **укрыва́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**УКРЫВА́ЛЬНІЦТВА**, -а, *н.* (спец.). Утойванне злачынца або ўкрадзеных рэчаў, слядоў злачынства. *Судзіць за ў.*

**УКРЫ́ЎДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго (што).* Моцна пакрыўдзіць. *Хто ўкрыўдзіў малога?*

**УКРЫ́ЦЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Месца, збудаванне, якое ўкрывае, абараняе ад каго-, чаго-н. *Страляць з укрыцця. У. ад зенітнага агню.*

**УКРЫ́ЦЬ**, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак., каго-што.* **1.** Закрыць з усіх бакоў. *У. машыну брызентам.* **2.** Запоўніць, засеяць чым-н. па паверхні, распаўсюдзіцца па ёй. *Цвіль укрыла сцены. Чырвань укрыла шчокі.* **3.** Схаваць, засцерагчы ад каго-, чаго-н. *Ноч укрыла партызан ад ворага. У. злачынца. У. маёмасць ад абкладання падаткам* (перан.: утаіць). || *незак.* **укрыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *звар.* **укры́цца**, -ы́юся, -ы́ешся, -ы́ецца; *незак.* **укрыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. || *наз.* **укрыццё**, -я́, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**УКРЫШЫ́ЦЬ**, -ышу́, -ы́шыш, -ы́шыць; -ы́шаны; *зак., што* і *чаго ў што.* Накрышыць чаго-н. у што-н. *У. цыбулі ў салату.*

**УКУ́С**, -у, *м.* **1.** *гл.* укусіць. **2.** *мн.* -ы, -аў. Укушанае месца. *Памазаць у. ёдам.*

**УКУСІ́ЦЬ**, -ушу́, -у́сіш, -у́сіць; -у́шаны; *зак., каго-што.* Ухапіўшы, praткнуўшы зубамі (ці праткнуўшы джалам), раніць. *Сабака ўкусіў за руку. Якая муха яго ўкусіла?* (перан.: што з ім, чым ён незадаволены?; разм., жарт.). || *наз.* **уку́с**, -у, *м.*

**УЛАВІ́ЦЬ**, улаўлю́, уло́віш, уло́віць; уло́ўлены; *зак.* **1.** *каго-што.* Схапіць, злавіць каго-, што-н. (разм.). *У. каня.* **2.** *што.* Выявіць і прыняць, зарэгістраваць прыборамі. *У. радыёхвалю.* **3.** *перан., што.* Успрыняць (органамі пачуццяў), заўважыць. *У. шолах лесу. У. насмешку ў словах. У. сэнс выказвання.* **4.** *што.* Тое, што і *улучыць* (у 1 знач.). *У. зручны момант.* || *незак.* **уло́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **уло́ўліванне**, -я, *н.*

**УЛАГО́ДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* Супакоіцца. *Мора ўлагодзілася.* || *незак.* **улаго́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УЛАГО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак., каго (што).* Дагаджаючы чым-н., задобрыць, супакоіць, суцешыць. *У. дзіця падарункам. У. калег жартамі.* || *незак.* **улаго́джваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **улаго́джванне**, -я, *н.* || *наз.* **улаго́джанне**, -я, *н.*

**УЛА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** *адз.* Права і магчымасць распараджацца кім-, чым-н., падпарадкоўваць сваёй волі. *Бацькоўская ў. Перавысіць уладу. Выпусціць каго-, што-н. з-пад сваёй улады. Траціць уладу над сабой* (губляць самакантроль). *Быць ва ўладзе* або *пад уладай каго-, чаго-н.* (пад уздзеяннем, уплывам; кніжн.). *Пад уладай пачуццяў* (перан.). **2.** *адз.* Палітычнае панаванне, дзяржаўнае кіраванне і яго органы. *Вярхоўная ў. Выканаўчая ў. Быць ва ўладзе. Прыйсці да ўлады.* **3.** *мн.* -ы, ула́д. Асобы з урадавымі і адміністрацыйнымі паўнамоцтвамі. *Мясцовыя ўлады.* ◊ **Ваша ўлада** — рабіце, што хочаце, ваша справа.

**УЛАДА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто ўладае чым-н. *У. аўтамашыны.* || *ж.* **улада́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. || *прым.* **улада́льніцкі**, -ая, -ае.

**УЛАДАЛЮ́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Уладалюбівы чалавек.

**УЛАДАЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які любіць уладу, імкнецца ўладарыць. || *наз.* **уладалю́бства**, -а, *н.*

**УЛАДА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* уладаць. **2.** *мн.* -і, -яў. Нерухомая маёмасць, зямельны ўчастак (таксама пра дзяржаўныя тэрыторыі). *Вялізныя ўладанні. Каланіяльныя ўладанні.*

**УЛАДА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Той, хто валодае чым-н., гаспадар чаго-н. *У. маёнтка.* **2.** Той, хто карыстаецца неабмежаванай вярхоўнай уладай, каму ўсе падначальваюцца. *У. дзяржавы. У. дум* (перан.). || *ж.* **улада́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак.

**УЛАДА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які валодае правам наследавання ўлады. *У. князь.* **2.** Схільны загадваць, падначальваць сабе; які выражае загад, здольны рабіць моцны ўплыў на каго-н. *У. характар. У. голас.* **3.** *перан.* Неадольны, усемагутны. *У. наступ вясны. Уладарная сіла натхнення.* || *наз.* **улада́рнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**УЛАДА́РСТВА**, -а, *н.* **1.** Вярхоўная ўлада, панаванне. **2.** Нерухомая маёмасць, якой валодаюць як уласнасцю; уладанне (у 2 знач.). *Аб'ехаць сваё ў.*

**УЛАДА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* **1.** Правіць краінай, дзяржавай, быць уладаром, мець уладу на кім-, чым-н. *У. над прыродай.* **2.** *перан.* Панаваць, займаць пануючае становішча. *На дварэ ўладарыць восень.* || *наз.* **улада́ранне**, -я, *н.*

**УЛАДА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *кім-чым.* Мець у сваёй уласнасці. *У. крыніцамі сыравіны.* **2.** *чым.* Мець якія-н. якасці, уласцівасці. *У. добрым голасам.* **3.** *чым.* Дзейнічаць, рухаць часткамі свайго цела. *Не ў. правай рукой.* **4.** *перан., кім.* Трымаць у сваёй уладзе, падпарадкоўваць сабе, кіраваць. *Адна думка ўладала ім.* || *наз.* **улада́нне**, -я, *н.* (да 1 і 4 знач.).

**УЛА́ДЗІЦЦА**, -джуся, -дзішся, -дзіцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Станоўча вырашыцца, ажыццявіцца. *Справа ўладзілася.* **2.** Уладкавацца, асталявацца, стварыць неабходныя ўмовы для існавання; размясціцца, прыстроіцца. *У. на кватэры. У. з харчаваннем.* **3.** Паступіць на работу, вучобу, службу і пад., заняць якое-н. месца, становішча (разм.). *У. на працу.* || *незак.* **ула́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. || *наз.* **ула́джванне**, -я, *н.*

**УЛА́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; -джаны; *зак.* **1.** *што.* Давесці да жаданага канца, да згоды. *У. справу. У. спрэчнае пытан-*

*не. У. канфлікт.* **2.** *каго (што).* Змясціць, прыстроіць куды-н.; дапамагчы паступіць на работу, вучобу. *У. хворага ў шпіталь. У. на кватэру. У. юнака на працу.* **3.** *каго-што.* Зручна размясціць, палажыць, паставіць. *У. калодачны вулей на дрэве.* **4.** *каму.* Унаравіць, дагадзіць (разм.). *Гэтаму чалавеку цяжка ў.* **5.** *што.* Прывесці ў належны парадак; зрабіць прыгодным для карыстання (разм.). *У. усё ў хаце. У. станок.* **6.** Паспець прыбыць куды-н. у пэўны час (разм.). *Уладзіў пад самы абед.* ‖ *незак.* **ула́джваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—6 знач.). ‖ *наз.* **ула́джванне**, -я, *н.* (да 1—3 і 5 знач.).

**УЛАДКАВА́ЦЦА**, -кýюся, -кýешся, -кýецца; -кýйся; *зак.* (разм.). **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыйсці ў належны парадак; станоўча вырашыцца. *Жыццё ўладкавалася. Справы ўладкаваліся.* **2.** Асталявацца, стварыць неабходныя ўмовы для жыцця; размясціцца, прыстроіцца. *Маладыя ўладкаваліся ў асобным пакоі. У. на возе.* **3.** Паступіць куды-н. (на работу, службу). *У. вучнем на завод.* ‖ *незак.* **уладкóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **уладкава́нне**, -я, *н.*

**УЛАДКАВА́ЦЬ**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; -кава́ны; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Прывесці ў належны парадак што-н., наладзіць, урэгуляваць. *У. усё ў кватэры. У. справу. У. непаразуменне.* **2.** *каго-што.* Стварыць неабходныя ўмовы для існавання; прыстроіць каго-н. куды-н., даць месца для жылля і пад. *У. асабістае жыццё. У. каго-н. у гасцініцу.* **3.** *каго (што).* Дапамагчы паступіць на работу, вучобу. *У. на працу.* **4.** *каго-што.* Зручна размясціць, палажыць, паставіць. *У. хворага на ложку. У. шпакоўню на дрэве.* ‖ *незак.* **уладкóўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **уладкóўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **уладкава́нне**, -я, *н.*

**УЛА́ДНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** Схільны навязваць сваю волю, загадваць, падначальваць сабе; які выражае ўладу, волю, рашучасць, уладарны. *У. чалавек. У. позірк.* **2.** (звычайна з адмоўем). Які мае права, уладу што-н. рабіць. *Не ўладны загасіць такі агонь.* **3.** *перан.* Неадольны, усемагутны. *Уладнае пачуццё.* ‖ *наз.* **ула́днасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**УЛАДЫ́КА**, -і, *мн.* -і, -ды́к, *м.* **1.** Тытуляванне архірэя. **2.** Тое, што і *уладар.* ‖ *ж.* **улады́чыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц (да 2 знач.).

**УЛАЖЫ́ЦЦА**, улажýся, улóжышся, улóжыцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Умясціцца ў што-н. *Усе рэчы ўлажыліся ў чамадан.* **2.** *перан.* Тое, што і *укласціся* (у 3 знач.). *Дакладчык улажыўся ў гадзіну.* ‖ *незак.* **уклада́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **укла́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УЛАЖЫ́ЦЬ**, улажý, улóжыш, улóжыць; улóжаны; *зак.* **1.** *што ў што.* Палажыць, змясціць унутр. *У. кнігу ў партфель. У. душу ў любімую справу* (перан.). **2.** *што ў што.* Змясціць у якое-н. прадпрыемства (сродкі, грошы). *У. сродкі ў будаўніцтва дарогі.* **3.** *каго (што).* Надаць каму-н. лежачае становішча, прымусіць легчы. *У. хворага ў пасцель.* **4.** *перан., каго (што).* Тое, што і *забіць* (у 1 знач.; разм.). *У. на месцы з аўтамата.* **5.** *што.* Зрабіць укладку (валасоў). *У. валасы.* ‖ *незак.* **уклада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—3 і 5 знач.) *і* **укла́дваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уклада́нне**, -я, *н.* (да 1—3 і 5 знач.), **укла́дванне**, -я, *н. і* **укла́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 5 знач.).

**УЛАЖЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Дадатковая рэч (звычайна каштоўная), уложаная ўнутр чаго-н. *Пакет з улажэннем.* **2.** Звод, збор законаў, пастаноў (уст.). *У. аб пакараннях. Саборнае ў. 1649 года.*

**УЛА́ЗІНЫ**, -зін; *адз. няма* (разм.). Уходзіны, наваселле.

**УЛА́ЗІЦЬ** *гл.* улезці.

**УЛАМА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., улóміцца; уламáўся, -мáлася; *зак.* (разм.). Праламацца пад уздзеяннем цяжару. *Дах уламаўся.* ‖ *незак.* **улóмлівацца**, -аецца *і* **улóмвацца**, -аецца.

**УЛАМА́ЦЬ**, уламлю, улóміш, улóміць; уламáў, -мáла; уламі́; уламáны; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Праламаць, зрабіць пралом. *У. страху.* **2.** *што* і *чаго.* Ломячы, аддзяліць, адламаць. *У. хлеба.* **3.** *перан., каго (што).* Пераканаць, угаварыць з цяжкасцю. *Ледзь уламалі ўпартага.* ‖ *незак.* **улóмліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **улóмваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **улóмліванне**, -я, *н. і* **улóмванне**, -я, *н.*

**УЛА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У арміі царскай Расіі і некаторых замежных арміях: ваенны з часцей лёгкай кавалерыі (першапачаткова — узброеных пікамі). *Эскадрон уланаў.* ‖ *прым.* **ула́нскі**, -ая, -ае.

**УЛАСКА́ВІЦЬ**, -кáўлю, -кáвіш, -кáвіць; *зак., каго (што).* Зрабіць ласкавым, лагодным. ‖ *незак.* **уласкаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **уласкаўлéнне**, -я, *н.*

**УЛА́СНА**. **1.** *пабочн. сл.,* са словам «кажучы» або без яго. Па сутнасці, на самай справе. *Я, у. кажучы, не чакаў такога.* **2.** *часц.* Ва ўласным разуменні слова. *За тэкстам літаратурнага сцэнарыя пачалася ў. рэжысёрская работа.*

**УЛАСНАРУ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Напісаны ўласнай рукой. *У. подпіс.*

**УЛА́СНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Маёмасць, якая належыць каму-н. *Дзяржаўная ў.* **2.** Прыналежнасць каго-, чаго-н. каму-, чаму-н. з правам распараджэння. *Прыватная ў. на зямлю. Набыць што-н. ва ў. Права ўласнасці.*

**УЛА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Уладальнік якой-н. маёмасці. *Дробны зямельны ў.* **2.** Той, хто імкнецца больш мець, хто ахоплены ўласніцкімі інтарэсамі. ‖ *ж.* **ула́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**УЛА́СНІЦКІ**, -ая, -ае. Уласцівы ўладальніку прыватнай уласнасці, звязаны з імкненнем да нажывы, абагачэння. *Уласніцкія схільнасці.*

**УЛА́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які належыць каму-, чаму-н. як уласнасць. *Уласная машына.* **2.** Свой, асабісты. *Зрабіць што-н. уласнымі рукамі. На ўласныя вочы ўбачыць. Па ўласнай волі.* **3.** Які знаходзіцца ў непасрэдным распараджэнні, падпарадкаванні каго-, чаго-н. *У. карэспандэнт. Уласная канцылярыя.* **4.** Літаральны, сапраўдны. *Ва ўласным сэнсе слова.* **5.** Уласцівы толькі каму-, чаму-н., без пабочных дабавак (спец.). *Уласная вага цела.* ○ **Уласнае імя** — у граматыцы: назоўнік, які з'яўляецца асабовай індывідуальнай назвай каго-, чаго-н.; *проціл.* агульнае імя. *Полацк — уласнае імя горада.*

**УЛАСЦІ́ВАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Характэрная асаблівасць, рыса, прымета каго-, чаго-н. *Валодаць якімі-н. уласцівасцямі. У. спадчыннасці арганізма.*

**УЛАСЦІ́ВЫ**, -ая, -ае; *каму-чаму.* Які характэрны для каго-, чаго-н., з'яўляецца ўласцівасцю, якасцю каго-, чаго-н. *З уласцівай яму працавітасцю. Чалавеку ўласціва* (прысл.) *памыляцца.*

**УЛА́ШЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., каго (што)* (разм.). Улагодзіць, задобрыць каго-н. ‖ *незак.* **ула́шчваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ула́шчванне**, -я, *н.*

**УЛЕ́ВА**, *прысл.* У левы бок. *Паварнуць у.*

**УЛЕ́ГЦЫ**, *прысл.* (разм.). Без паклажы, паражняком. *Машына пайшла ў.*

**УЛЕ́ГЧЫ**, улягу, уля́жаш, уля́жа; уля́жам, уля́жаце, уля́гуць; улёг, улéгла *і* улягла́, улéгла *і* улягло́; уля́ж; *зак.* (разм.). **1.** *у што* і *з інф.* Поўнасцю аддацца якой-н. справе. *У. ў навуку. У. габляваць.* **2.** *перан., у што* і *з інф.* Уцягнуцца ў што-н., набыць моцную схільнасць да чаго-н. *У. ў гарэлку.* **3.** *за кім-чым.* Кінуцца наўздагон. *Сабака ўлёг за катом.* **4.** *за кім.* Пачаць заляцацца. *У. за дзяўчынай.* ‖ *незак.* **уляга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1, 2 і 4 знач.).

**УЛЕ́ГЧЫСЯ**, уля́гуся, уля́жашся, уля́жацца; уля́жамся, уля́жацеся, уля́гуцца; улёгся, улéглася *і* улягла́ся, улéглася *і* улягло́ся; уля́жся; *зак.* **1.** Легчы (спаць ці адпачываць); змясціцца дзе-н. у ляжачым становішчы. *У. адпачываць. Ты на гэтай канапцы не ўляжашся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Змясціцца (пра прадметы). *Кнігі ўлегліся ў чамадан.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Асесці, апусціцца. *Улёгся пыл. Сена ўляглося.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Аслабець, сціхнуць, супакоіцца (разм.). *Бура ўлеглася. Брэх сабак улёгся. Хваляванне ўляглося.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Усталявацца, стаць. *Зіма добра ўлеглася.* ‖ *незак.* **уляга́цца**, -а́ецца (да 3 і 4 знач.), **уклада́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (да 1 і 2 знач.) *і* **укла́двацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 2 знач.).

**УЛЕ́ЖАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* **1.** Асесці, ушчыльніцца ад доўгага ляжання. *Снег улежаўся.* **2.** Пасля доўгага ляжання стаць гатовым для карыстання, далейшай апрацоўкі (пра садавіну, лён). *Яблыкі ўлежаліся ў саломе. Лён улежаўся.* ‖ *незак.* **уле́жвацца**, -аецца.

**УЛЕ́ЖАЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; *зак.* Прабыць на якім-н. месцы лежачы. *І паўгадзіны не ўлежыш у такую спёку.*

што і *запрэчы. У. каня ў калёсы.* || *незак.* **упрагáць**, -áю, -áеш, -áе. || *звар.* **упрэ́гчыся**, -рагу́ся, -ражэ́шся, -ражэ́цца; -ражóмся, -ражацéся, -рагу́цца; -рóгся, -рэ́глася; -ражы́ся; *зак. У. ў работу* (перан.: уключыцца ў доўгую, цяжкую работу; разм.); *незак.* **упрагáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**УПРЭ́ГЧЫ**[2], -рагу́, -ражэ́ш, -ражэ́; -ражóм, -ражацé, -рагу́ць; -рóг, -рэ́гла; -ражы́; -рэ́жаны; *зак., што.* Тое, што і *упражыць. У. боб.*

**УПРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які добра ўварыўся, згатаваўся на жары, невялікім агні. *Упрэлая каша.* **2.** Упацелы, упараны (разм.). *У. конь.*

**УПРЭ́ЦЬ** *гл.* прэць.

**УПУСТУ́Ю**, *прысл.* Дарэмна, безвынікова. *Схадзілі ў.*

**УПУСЦІ́ЦЬ**, -ушчу́, -у́сціш, -у́сціць; -у́шчаны; *зак.* **1.** *каго-што.* Даць увайсці каму-, чаму-н. куды-н. *У. пасажыраў у вагон. У. холад у хату. У. каплі ў нос* (уліць). **2.** *каго-што.* Выпадкова не ўтрымаць. *У. канец вяроўкі.* **3.** *каго (што).* Мімаволі даць магчымасць каму-н. уцячы, схавацца і пад. *У. зайца.* **4.** *перан., што.* Прапусціць, не выкарыстаць што-н. своечасова. *Ён свайго не ўпусціць. У. магчымасць. У. выпадак.* **5.** *што.* Уставіць у выразанае, паглыбленае месца. *У. замок у дзверы.* || *незак.* **упускáць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **упу́ск**, -у, *м.* (да 1 знач.) *і* **упускáнне**, -я, *н.* (да 1 знач.); *прым.* **упускны́**, -áя, -óе (спец.). *У. клапан.*

**УПХА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *зак., што* (разм.). **1.** Пхаючы, усунуць куды-н. усё, многае. *У. салому ў мяшок.* **2.** З'есці многа чаго-н. (груб.). *Місу бульбы ўпхаў.* || *незак.* **упіхáць**, -áю, -áеш, -áе *і* **упі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УПХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* (разм.). З намаганнем прабрацца куды-н.; уціснуцца. *У. ў перапоўнены аўтобус.* || *незак.* **упіхáцца**, -áюся, -áешся, -áецца *і* **упі́хвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УПХНУ́ЦЬ**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што ў што.* Уштурхнуць, усунуць. *У. пальчаткі ў кішэню. Яго сілай упхнулі ў кабінет.* **2.** *перан., што.* Прымусіць узяць, прыняць што-н. *У. няякасны тавар каму-н.* **3.** *перан., каго.* Паставіць на якую-н. работу, пасаду і пад. супраць волі або ўладкаваць куды-н. па пратэкцыі. *У. на завод. У. сына на завочнае аддзяленне інстытута.* || *незак.* **упіхáць**, -áю, -áеш, -áе *і* **упі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УПЫНАК**, -нку, *м.* (разм.). Спакой. *Дома ён не знаходзіў упынку.* ◊ **Без упынку** — не перастаючы, не абмяжоўваючы сябе. *Балбатаць без упынку.* **Не знаходзіць** або **не мець упынку** — не магчы супакоіцца, не быць у стане ўтрымацца ад чаго-н. *Ён цэлы дзень не знаходзіў сабе ўпынку. Яна ў рабоце не мае ўпынку.* **Няма ўпынку** *каму-чаму* або *на каго-што* — нельга стрымаць, спыніць. *Раздурэліся дзеці, што і ўпынку ім* або *на іх няма. Дажджу* або *на дождж сёння і ўпынку няма — лье і лье.*

**УПЫРСНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што.* Увесці пад скуру (шпрыцам). *У. камфару.* || *незак.* **упы́рскваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **упы́рскванне**, -я, *н.*

**УПЫРХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* Пырхаючы, уляцець. *Верабей упырхнуў у акно.* || *незак.* **упы́рхваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УПЭ́ЎНЕНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* упэўнены. **2.** Цвёрдая вера ў каго-, што-н., перакананасць у чым-н. *У. у сваіх сілах. У. у сябрах.*

**УПЭ́ЎНЕНЫ**, -ая, -ае. Які цвёрда верыць у што-н., перакананы ў чым-н.; цвёрды, рашучы. *У. ў поспех. У. ў сабе* (не сумняваецца ў сваіх сілах, магчымасцях). *Упэўнена* (прысл.) *гаварыць. У. крок. У. адказ.* ◊ **Будзь упэўнены** — не сумнявайся, не турбуйся (усё будзе так, як трэба). || *наз.* **упэ́ўненасць**, -і, *ж.*

**УПЭ́ЎНІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак., у чым* і *з дадан.* Цвёрда паверыць у што-н., пераканацца ў чым-н. *У. ў чыёй-н. шчырасці. Мы ўпэўніліся, што ён не падвядзе чалавека.* || *незак.* **упэ́ўнівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УПЭ́ЎНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -нены; *зак., каго (што) у чым* і *з дадан.* Прымусіць паверыць у што-н., пераканаць у чым-н. *У. слухачоў у сваёй праваце.* || *незак.* **упэ́ўніваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УПЭ́ЦКАЦЦА** *гл.* пэцкацца.

**УПЭ́ЦКАЦЬ** *гл.* пэцкаць.

**УПЯКА́ЦЦА** *гл.* упячыся.

**УПЯКА́ЦЬ** *гл.* упячы.

**УПЯРЭ́МЕШКУ**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *уперамешку.*

**УПЯЦЁХ**, *прысл.* У колькасці пяці чалавек (толькі пра мужчын ці толькі пра жанчын). *Пайшлі касіць у.*

**УПЯ́ЦЦА**, упну́ся, упнéшся, упнéцца; упнёмся, упняцéся, упну́цца; упя́ўся, упя́лася; упні́ся; *зак.* **1.** *чым у што.* Уперціся ў што-н. для апоры, адштурхоўвання, супраціўлення або моцна ўчапіцца за што-н. *У. ў дзверы і не пускаць каго-н. У. рукамі ў баранку аўтамашыны.* **2.** Напружыць свае сілы, напяцца. *Конь упяўся і крануў воз з месца.* **3.** *перан.* Уперціся, не захацець згадзіцца з чым-н. (разм.). *Упяўся і не пусціў мяне ў паездку.* || *незак.* **упінáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**УПЯЦЯРЫ́Х**, *прысл.* Колькасцю ў пяць асоб (рознага полу) або істот (ніякага роду).

**УПЯЧЫ́**, упяку́, упячэ́ш, упячэ́; упячóм, упечацé, упяку́ць; упёк, упяклá, -лó; упячы́; упéчаны; *зак.* **1.** *што.* Спячы, добра прапячы. *У. хлеб.* **2.** *каго (што).* Адправіць куды-н. супраць волі; зняволіць (разм.). *У. ў глуш. У. ў турму.* **3.** *каго.* Папракнуць, з'едліва сказаць што-н. каму-н. (разм.). *У. каго-н. на сходзе.* **4.** *што.* Марна патраціць (разм.). *Упяклі столькі грошай.* || *незак.* **упякáць**, -áю, -áеш, -áе.

**УПЯЧЫ́СЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ячэ́цца, -яку́цца; упёкся, упяклáся, -лóся; *зак.* Спячыся да поўнай гатоўнасці. *Хлеб добра ўпёкся.* || *незак.* **упякáцца**, -áецца.

**УРА́**, *выкл.* Баявы вокліч войск пры атацы, а таксама вокліч, які выражае захапленне, адабрэнне. ◊ **На ўра** — 1) рашучай атакай ці ў рашучую атаку з крыкамі «ўра»; 2) *перан.* з энтузіязмам, горача (разм.). *Прапанова прайшла на ўра;* 3) *перан.* не падрыхтаваўшыся, з надзеяй на выпадковы поспех (разм.). *Дзейнічаць на ўра.*

**УРАБІ́ЦЦА**, ураблю́ся, урóбішся, урóбіцца; *зак., у што* і *без дап.* (разм.). Вымазацца, упэцкацца ў што-н. *Дзе ты гэтак урабіўся?* || *незак.* **урóблівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УРАБІ́ЦЬ**, ураблю́, урóбіш, урóбіць; урóблены; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Падрыхтаваць (зямлю) для пасеву; абрабіць. *У. агарод.* **2.** *каго-што ў што.* Вымазаць, упэцкаць. *У. рукі ў гразь.* **3.** *што ў што.* Уставіць унутр, замацаваўшы. *У. замок у дзверы.* **4.** *што ў што.* Уплесці вязаннем. *У. пяту ў панчоху.* || *незак.* **урабля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (да 1 знач.) *і* **урóбліваць**, -аю, -аеш, -ае (да 3 і 4 знач.). || *наз.* **урабля́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **урóбліванне**, -я, *н.* (да 3 і 4 знач.).

**УРАГА́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вецер разбуральнай сілы. *Па лесе прайшоў у. У. вайны* (перан.). *Пранесціся ўраганам* (перан.: імкліва). || *прым.* **урагáнны**, -ая, -ае. *Вецер ураганнай сілы. У. абстрэл* (бесперапынны, моцны на працягу значнага часу).

**УРА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вышэйшы выканаўчы і распарадчы орган дзяржаўнай улады ў краіне. *Беларускі ў.* || *прым.* **урáдавы**, -ая, -ае. *Урадавая камісія.*

**УРАДЖА́Й**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Колькасць збожжа, пладоў, раслін, якая ўрадзілася, вырасла. *Сабраць у. Добры ў. садавіны.* **2.** Вялікая колькасць збожжа, пладоў, раслін, якая ўрадзілася. *Калі добра ўзарэш, то і ў. збярэш* (прыказка). *На дзяўчат у.* (перан.: вельмі многа; жарт.). || *прым.* **ураджáйны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Ураджайныя гатункі пшаніцы.*

**УРАДЖА́ЙНАСЦЬ**, -і, *ж.* Узровень ураджаю (у 1 знач.) з пэўнай плошчы пасеву. *Павелічэнне ўраджайнасці бульбы.*

**УРАДЖЭ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Чалавек родам з пэўнай мясцовасці, краіны і пад. *У. Случчыны.* || *ж.* **ураджэ́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**УРАДЗІ́ЦЦА**, ураджу́ся, урóдзішся, урóдзіцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра плады, злакавыя расліны і пад.: вырасці, паспець. *Добры авёс урадзіўся.* **2.** *якім* і *у каго.* Аказацца з якімі-н. якасцямі, асаблівасцямі ад нараджэння; нарадзіцца падобным на каго-н. (разм.). *Такім ён ужо ўрадзіўся. У. ў бацьку.*

**УРАДЗІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., урóдзіць; *зак.* Даць ураджай, плады. *Жыта добра ўрадзіла. Не ўрадзіў мак — перабудзем і так.*

**УРАДЛІ́ВАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Здольнасць забяспечваць расліны пажыўнымі рэчывамі, даваць ураджай. *У. глебы.* **2.** Тое, што і *ураджайнасць. Павысіць у. ільну.*

**УРАДЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вызначаецца ўрадлівасцю (у 1 знач.). *Урадлівая глеба.* **2.** Які характарызуецца багатым ураджаем. *У. год.*

**УРА́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** У царскай арміі: казацкі унтэр-афіцэр. **2.** У царскай Расіі: ніжэйшы чын паватовай паліцыі. || *прым.* **ура́дніцкі**, -ая, -ае.

**УРАЖА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які робіць моцнае ўражанне (у 2 знач.). *У. паказчык.* || *наз.* **уража́льнасць**, -і, *ж.*

**УРА́ЖАННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** След, які застаецца ў свядомасці, у душэўным жыцці ад убачанага, пачутага, перажытага. *Уражанні дзіцячых гадоў. Падарожныя ўражанні.* **2.** Уплыў, уздзеянне. *Знаходзіцца пад моцным уражаннем.* **3.** Уяўленне, думка, што склаліся ў выніку знаёмства, сустрэчы з кім-, чым-н. *Дзяліцца ўражаннямі з кім-н. Гэты чалавек зрабіў на нас добрае ў. Складваецца ў., што ён не ва ўсім тут разабраўся.*

**УРАЖА́ЦЬ** *гл.* уразіць.

**УРА́ЖВАЦЬ** *гл.* уразіць.

**УРА́ЖЛІВЫ**, -ая, -ае. Які лёгка паддаецца ўражанням, вельмі чулы. *Уражлівае дзіця.* || *наз.* **ура́жлівасць**, -і, *ж.*

**УРА́З**, *прысл.* **1.** У той жа момант, імгненна. *У. разгарэлася сварка.* **2.** За адзін прыём, адразу. *Вецер у. замятаў сляды на снезе.*

**УРАЗА́ЦЦА** *гл.* урэзацца.

**УРАЗА́ЦЬ** *гл.* урэзаць.

**УРАЗБІ́ЎКУ**, *прысл.* Не па парадку, не падрад. *Правяраць веданне табліцы множання ў.*

**УРАЗБРО́Д**, *прысл.* Паасобку, нядружна. *Дзейнічаць у.*

**УРАЗВА́ЛКУ**, *прысл.* (разм.). Перавальваючыся, пахістваючыся на хаду (пра паходку). *Ісці ў.*

**УРАЗДРО́Б**, *прысл.* (разм.). Часткамі, у розніцу. *Прадаваць тавар у.*

**УРА́ЗІЦЬ**, -а́жу, -а́зіш, -а́зіць; -а́жаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Зрабіць вялікае ўражанне. *Яго ўразіла незвычайная цішыня.* **2.** *каго-што.* Балюча закрануць, пакрыўдзіць. *У. чыё-н. самалюбства.* || *незак.* **ура́жваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **уража́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УРА́ЗЛІВЫ**, -ая, -ае. Здольны жыва адчуваць, успрымаць што-н.; такі, якога лёгка вывесці з раўнавагі. *У. чалавек. Уразлівае сэрца.* || *наз.* **ура́злівасць**, -і, *ж.*

**УРАЗНАБО́Й**, *прысл.* (разм.). Нязладжана, паасобку. *Крочаць у.*

**УРАЗНО́С**, *прысл.* (разм.). Разносячы тавары па хатах, вуліцах. *Гандляваць у.*

**УРАЗРЭ́З**, *прысл.* У выразе: **ісці ўразрэз** *з чым* — рэзка разыходзіцца з чым-н., супярэчыць чаму-н.

**УРАЗУМЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; -е́ты; *зак., што.* Ахапіць розумам, асэнсаваць, усвядоміць. *У. ісціну. У. свой патрыятычны абавязак. У. свае памылкі.* || *незак.* **уразумява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. || *наз.* **уразуме́нне**, -я, *н.*

**УРАКА́ЦЬ** *гл.* урачы.

**УРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Галіна медыцыны, якая займаецца хваробамі мачавой сістэмы (у мужчын — мочапалавых органаў). || *прым.* **уралагі́чны**, -ая, -ае.

**УРА́Н**, -у, *м.* Хімічны элемент, метал, які валодае радыеактыўнымі ўласцівасцямі. || *прым.* **ура́навы**, -ая, -ае. *Уранавая руда.*

**УРА́-ПАТРЫЯТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Паказны і шумны патрыятызм. || *прым.* **ура́-патрыяты́чны**, -ая, -ае.

**УРАССЫПНУ́Ю**, *прысл.* У розныя бакі. *Кінуцца ў.*

**УРАСЦІ́**, -ту́, -це́ш, -це́; уро́с, урасла́, -ло́; *зак.* **1.** *у што.* Па меры росту пранікнуць углыб, унутр. *Яблынькі добра ўраслі карэннем у глебу. Хата па вокны ўрасла ў зямлю* (перан.: моцна асела). **2.** *чым.* Зарасці, парасці. *Двор урос травой.* || *незак.* **ураста́ць**, -а́е.

**УРАСЦЯ́ЖКУ**, *прысл.* Выцягнуўшыся на ўсю даўжыню, на ўвесь рост або напружваючы сілы (пра каня). *Легчы ў. Конь цягнуў воз у.*

**УРАТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *зак., ад каго-чаго* (разм.). Уберагчыся, збавіцца ад чаго-н. непрыемнага, непажаданага. *У. ад бяды. У. ад дажджу.* || *незак.* **урато́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *наз.* **урато́ўванне**, -я, *н.*

**УРАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак., каго-што* (разм.). Уберагчы, захаваць у цэласці, пазбавіць ад чаго-н. непрыемнага, непажаданага. *У. ураджай. У. дзіця ад прастуды.* || *незак.* **урато́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **урато́ўванне**, -я, *н.* || *наз.* **уратава́нне**, -я, *н.*

**УРАЎНАВА́ЖАНЫ**, -ая, -ае. Роўны, спакойны (пра характар, паводзіны). *У. чалавек. У. характар.* || *наз.* **ураўнава́жанасць**, -і, *ж.*

**УРАЎНАВА́ЖЫЦЬ**, -жу, -жыш, -жыць; -жаны; *зак., што.* **1.** Зрабіць аднолькавым па вазе. *У. шалі вагаў.* **2.** *перан.* Дабіцца раўнавагі, зрабіць роўным, ураўнаваць адно з другім. *У. сілы праціўнікаў.* || *незак.* **ураўнава́жваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УРАЎНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак., каго-што.* Зрабіць роўным, аднолькавым. *У. канцы вяроўкі. У. каго-н. у правах з кім-н.* || *незак.* **ураўно́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **ураўно́ўванне**, -я, *н.* || *наз.* **ураўнава́нне**, -я.

**УРАЎНЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Матэматычная роўнасць з адной або некалькімі невядомымі велічынямі, якая захоўвае сваю сілу толькі пры пэўных значэннях гэтых велічынь. *У. з двума невядомымі. Інтэгральнае ў.*

**УРАЎНІ́ЛАЎКА** -і, *ДМ* -лаўцы, *мн.* -і, -лавак, *ж.* (разм.). Неабгрунтаванае і нічым не апраўданае ўраўноўванне ў чым-н., ураўняльны падыход да чаго-н. *У. ў аплаце працы* (незалежна ад яе колькасці і якасці).

**УРАЎНЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які ўраўноўвае (аб'ём, меру і пад. чаго-н.), устанаўлівае роўнасць у чым-н. *Ураўняльнае размеркаванне. У. падыход да каго-, чаго-н.* || *наз.* **ураўня́льнасць**, -і, *ж.*

**УРА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Асоба з вышэйшай медыцынскай адукацыяй, якая лечыць хворых. || *ж.* **урачы́ха**, -і, *ДМ* -чы́се, *мн.* -і, -чы́х (разм.).

**УРАЧЫ́**, ураку́, урачэ́ш, урачэ́; урачо́м, урачаце́, ураку́ць; уро́к, -ракла́, -ло́; урачы́; урачо́ны; *зак., каго-што* і *без дап.* Тое, што і *сурочыць.* || *незак.* **урака́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УРАЧЫ́СТАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* урачысты. **2.** Святкаванне якой-н. выдатнай падзеі. *Сямейная ў.* (з выпадку дня нараджэння, шлюбу і пад.). **3.** Стан прыўзнятасці, натхнення, захаплення. *На душы была ў.*

**УРАЧЫ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да ўрачыстасці (у 2 знач.), звязаны з урачыстасцямі, які суправаджаецца ўрачыстасцю. *У. дзень. У. парад войск. Урачыстае пасяджэнне.* **2.** Важны, знамянальны; які вызначаецца велічнасцю; сур'ёзны. *Урачыстая хвіліна развітання. У. голас. У. выгляд.* **3.** Надзвычай важны па значэнні, змесце. *Урачыстая клятва. Урачыстыя словы прысягі.* || *наз.* **урачы́стасць**, -і, *ж.*

**УРАЧЭ́БНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *медыцынскі. У. пункт. Урачэбная дапамога.*

**УРБАНІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -заваны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Сканцэнтраваць (канцэнтраваць) насельніцтва, матэрыяльнае і духоўнае жыццё ў гарадах. || *наз.* **урбаніза́цыя**, -і, *ж.* || *прым.* **урбанізацы́йны**, -ая, -ае.

**УРБАНІ́ЗМ**, -у, *м.* (спец.). **1.** Напрамак у мастацтве, які адлюстроўвае жыццё сучасных вялікіх гарадоў. **2.** Напрамак у горадабудаўніцтве, які сцвярджае неабходнасць стварэння вялікіх гарадоў. || *прым.* **урбаністы́чны**, -ая, -ае.

**УРБАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Прыхільнік, паслядоўнік урбанізму. *Мастак-у.* || *ж.* **урбані́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **урбані́сцкі**, -ая, -ае.

**У́РВІС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Свавольнік, вісус.

**У́РНА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Пасудзіна, звычайна ў выглядзе вазы, для пахавання, захавання ў калумбарыі праху нябожчыкаў, падвергнутых спальванню. **2.** Скрынка з вузкай адтулінай для апускання выбарчых бюлетэняў. **3.** Спецыяльнае ёмішча, якое ўстанаўліваецца на вуліцах для смецця, акуркаў.

**УРО́БЛІВАЦЦА** *гл.* урабіцца.

**УРО́БЛІВАЦЬ** *гл.* урабіць.

**УРО́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе. **1.** *мн.* -ы, уро́д, *м.* і *ж.* Чалавек з фізічным недахопам, брыдкім абліччам. **2.** *ж.* Натура, характар; прырода. *Такая ўжо яго ў.*

**УРО́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Вучэбная работа, зададзеная вучню. *Вывучыць у. Не зрабіў урокаў* (не выканаў). *На заўтра ў мяне многа ўрокаў.* **2.** Вучэбная гадзіна, прысвечаная асобнаму прадмету. *У. роднай мовы. Званок на ў., з урока. Зарабляць урокамі* (даючы прыватныя ўрокі). **3.** Работа, якая павінна быць выканана да пэўнага тэрміну (уст.). *Выканаць дзённы ў.* **4.** *перан.* Нешта павучальнае, з чаго можна зрабіць вывад на будучае. *Урокі гісторыі. Атрымаць добры ў. Гэта табе будзе ў. надалей.* ◊ **Браць урокі** *чаго ў каго* — вучыцца ў каго-н. прыватным чынам, не ў школе. *Браць урокі музыкі.* **Даваць урокі** — выкладаць асобным вучням, не ў школе.

**УРО́КІ**, -аў, *адз.* уро́к, -у, *м.* (разм.). Паводле народных уяўленняў: няшчасце, хвароба, пашкоджанне, выкліканыя благім вокам ці дрэнным словам. *Баяцца ўрокаў.*

**УРО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач — спецыяліст у галіне ўралогіі.

**УРО́СЛЫ**, -ая, -ае. Які ўрос. *Урослая ў зямлю хацінка.*

**УРО́ССЫП**, *прысл.* **1.** Тое, што і *урассыпную. Бегчы ў.* **2.** Асобна, не разам. *Касцы пасталі ў.*

**УРО́Н**, -у, *м.* Страта, шкода. *Буран нанёс значны ў. гаспадарцы.*

**УРО́ЧНЫ**, -ая, -ае. Устаноўлены паводле пэўнай умовы. *Урочная работа. У. час.*

**УРО́ЧЫШЧА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Участак, адрозны ад навакольнай мясцовасці, напр., балота, лес сярод поля.

**УРУ́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Шчыліна, якая прабіваецца ў горнай пародзе перад адбіваннем глыб.

**УРУ́БАВЫ**, -ая, -ае. Які служыць для ўтварэння ўруба. *Урубавая машына.*

**УРУБІ́ЦЦА**, урублю́ся, уру́бішся, уру́біцца; *зак., у што* (спец.). Зрабіць уруб. ‖ *незак.* **уру́блівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УРУБІ́ЦЬ**, урублю́, уру́біш, уру́біць; уру́блены; *зак., што ў што.* Уставіць у высечаную адтуліну. *У. перагародку ў сцяну.* ‖ *незак.* **уру́бліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уру́бліванне**, -я, *н.*

**УРУ́К**, -у, *м., зб.* Высушаныя з костачкамі дробныя плады абрыкосаў.

**УРУКАПА́ШНУЮ**, *прысл.* Дзейнічаючы рукамі ці ручной зброяй (біцца, змагацца). *Пайсці ў.*

**УРУЧНУ́Ю**, *прысл.* Ручным спосабам (не машынным). *Шыць у.*

**УРУЧЫ́ЦЬ**, уручу́, уру́чыш, уру́чыць; уру́чаны; *зак., каго-што каму.* **1.** Аддаць у рукі, непасрэдна. *У. дыплом.* **2.** Даверыць, даручыць (кніжн.). *У. свой лёс каму-н.* (перан.). ‖ *незак.* **урuча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **уручэ́нне**, -я, *н.*

**УРЫ́ВАК**, -ы́ўка, *мн.* -ы́ўкі, -ы́ўкаў, *м.* Тое, што з'яўляецца часткай чаго-н. цэлага; невялікая частка, выдзеленая з якога-н. твора. *У. з апавядання.*

**УРЫВА́ЦЦА**[1] *гл.* урыцца.

**УРЫВА́ЦЦА**[2] *гл.* уварвацца.

**УРЫВА́ЦЬ** *гл.* уварваць.

**УРЫ́ЎКАМІ**, *прысл.* Адрываючыся ад якіх-н. спраў, прыхваткамі. *Дапамагаць маці ў. паміж вучобай.*

**УРЫ́ЦЦА**, -ы́юся, -ы́ешся, -ы́ецца; *зак., у што.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пранікнуць у глыб чаго-н. рыючы (пра жывёл). **2.** Схавацца ў вырытым паглыбленні ці ў чым-н. сыпкім. *У. ў сена.* ‖ *незак.* **урыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УРЭГУЛЯВА́ЦЬ** *гл.* рэгуляваць.

**УРЭ́ЗАЦЦА**, -э́жуся, -э́жашся, -э́жацца; -э́жся; *зак., у што.* **1.** Уваткнуцца, уклініцца ў што-н. вузкім, вострым. *Човен урэзаўся ў пясчаны бераг. Лес клінам урэзаўся ў поле* (перан.). **2.** *перан.* Імкліва ўварвацца ўнутр чаго-н. *Конніца ўрэзалася ў варожыя рады.* **3.** *перан.* Запомніцца моцна і адразу. *У. ў памяць.* **4.** *перан.* З разгону сутыкнуцца з чым-н. (разм.). *Машына ўрэзалася ў слуп.* ‖ *незак.* **ураза́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца *і* **урэ́звацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УРЭ́ЗАЦЬ**, -э́жу, -э́жаш, -э́жа; -э́ж; -э́заны; *зак.* **1.** *што.* Адрэзаўшы частку, укараціць, паменшыць. *У. крысо.* **2.** *перан., што.* Зменшыць, убавіць; абмежаваць. *У. расходы. У. паўнамоцтвы.* **3.** *што ў што.* Уставіць у выразанае месца. *У. замок у дзверы.* **4.** *што* і *чаго* (пераважна з адмоўем). З цяжкасцю адрэзаць (што-н. надта цвёрдае; разм.). *Мяса такое мёрзлае, што не ў.* **5.** *што* і *чаго.* Адрэзаць, нарэзаць невялікую колькасць чаго-н. (разм.). *У. вяндліны. У. сечкі карове.* **6.** *перан., што* і *без дап.* Нечакана і гучна заіграць, заспяваць (разм.). *У. польку.* **7.** *каму, па чым* і *без дап.* Моцна ўдарыць, пабіць, збіць (разм.). *У. па твары. Так урэзалі яму, што і з ног зваліўся.* **8.** *што* і *без дап.* Сказаць прама і рэзка, заявіць што-н. (разм.). *У. праўду.* ‖ *незак.* **ураза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1—3 знач.) *і* **урэ́зваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—3 знач.). ‖ *наз.* **ураза́нне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.), **урэ́званне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.) *і* **урэ́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *ж.* (да 1—3 знач.).

**УРЭМІ́Я**, -і, *ж.* Самаатручэнне арганізма рэчывамі, якія затрымліваюцца ў ім пры хваробе нырак. ‖ *прым.* **урэмі́чны**, -ая, -ае.

**УРЭ́ШЦЕ**. **1.** *прысл.* Пасля ўсяго, напаследак, нарэшце. *Ён у. паявіўся.* **2.** *у знач. далучальнага злуч.* Ужыв. для далучэння асобнага слова ці цэлага сказа. *Гул слабеў, у. знік зусім.* **3.** *у знач. пабочн. сл.* Паказвае на завяршэнне працэсу, дзеяння, з'явы. *Ну, я, у., скончыла сваю работу.* **4.** *у знач. пабочн. сл.* Ужыв. як выражэнне крайняй ступені незадавальнення, нецярпення або падкрэслівае што-н. *Замоўкні ты, у.! У., з кім хачу, з тым і сябрую.*

**УС...**, *прыстаўка* (*гл.* **уз...**). Ужыв. замест «уз...» перад глухімі зычнымі, напр.: *ускінуць, уссесці.*

**УСАДЗІ́ЦЬ**, усаджу́, уса́дзіш, уса́дзіць; уса́джаны; *зак.* **1.** *што ў што.* Уваткнуць з сілай (а таксама трапіць снарадам, куляй у што-н.; разм.). *У. рыдлёўку ў зямлю. У. кулю ў лоб.* **2.** *што ў што.* Усунуць унутр чаго-н. *У. руку ў ваду.* **3.** *каго (што).* Прымусіць або памагчы сесці. *У. гасцей.* **4.** *каго (што) за што* і *з інф.* Прапанаваць сесці, даўшы які-н. занятак, прымусіць рабіць што-н. *У. за піяніна. У. чытаць.* **5.** *што ў што.* Пасадзіць пячыся (разм.). *У. хлеб у печ.* **6.** *што чым.* Саджаючы (расліны), заняць якую-н. прастору. *У. градку кветкамі.* **7.** *перан., што* і *чаго ў што.* Расходаваць, патраціць (сродкі, грошы; разм.). *У. многа грошай у будаўніцтва.* ‖ *незак.* **уса́джваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уса́джванне**, -я, *н.* (да 1, 3, 4 і 6 знач.) *і* **уса́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* (да 6 знач.; разм.).

**УСА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* **1.** *гл.* усадзіць. **2.** Памяншэнне ў аб'ёме, памеры пры ўсыханні, застыванні, ушчыльненасці (спец.). *У. бетону. У. тканіны.*

**УСАЧЫ́ЦЬ**, усачу́, усо́чыш, усо́чыць; усо́чаны; *зак., за кім-чым.* **1.** Сочачы за кім-, чым-н., паспець заўважыць што-н. *За падзеямі не ў.* **2.** Назіраючы, не дапусціць чаго-н. непажаданага, утрымаць ад непажаданых учынкаў. *У. за дзіцем.*

**УСВА́ТАЦЬ** *гл.* сватаць.

**УСВЯДО́МІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; -млены; *зак.* Поўнасцю зразумець што-н.; уразумець. *У. неабходнасць чаго-н. У. сабе ўсе акалічнасці справы.* ‖ *незак.* **усведамля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е *і* **усвядо́мліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **усведамле́нне**, -я, *н.*

**УСЁ** *гл.* увесь.

**УСЕ...** (а таксама **уся...**). Першая частка складаных слоў у знач.: які ахоплівае ўсіх, распаўсюджваецца на ўсіх; абазначае паўнату якасці, выражаную другой часткай слова, адпавядае па знач. займенніку «увесь» («уся»), «усе», напр.: *усеагульны, усебаковы, усенародны.*

**УСЕАГУ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да ўсіх, распаўсюджваецца на ўсё. *Усеагульнае выбарчае права. Усеагульнае навучанне. Курс усеагульнай гісторыі.* ‖ *наз.* **усеагу́льнасць**, -і, *ж.*

**УСЕБАКО́ВЫ**, -ая, -ае. Які ахоплівае, разглядае што-н. з усіх бакоў, падрабязны. *У. разгляд справы. Усебакова* (прысл.) *абмеркаваць пытанне.* ‖ *наз.* **усебако́васць**, -і, *ж.*

**УСЕБЕЛАРУ́СКІ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да ўсёй Беларусі.

**УСЕ́ДЗЕЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *зак.* Застацца сядзець, утрымацца ад таго, каб устаць. *Хлопчык хвіліны на месцы не ўседзіць. Хіба ў такую пагоду ўседзіш у хаце. Ледзь уседзеў на месцы ад нечаканасці. На гэтай пасадзе ён доўга не ўседзеў* (перан.).

**УСЕ́ДЛІВЫ**, -ая, -ае. Старанны ў тым, што патрабуе доўгай і цярплівай сядзячай работы. *У. студэнт. Уседліва* (прысл.) *працаваць. У. ў рабоце.* ‖ *наз.* **усе́длівасць**, -і, *ж.*

**УСЕ́ЙВАЦЦА** *гл.* усеяцца.

**УСЕ́ЙВАЦЬ** *гл.* усеяць.

**УСЕМЯРЫ́Х**, *прысл.* Колькасцю ў сем асоб (рознага полу) або істот (ніякага роду).

**УСЕНАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. Агульны для ўсяго народа, які належыць усяму народу. *Усенароднае свята.*

**УСЕРАСІ́ЙСКІ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да ўсёй Расіі. *У. з'езд.*

**УСЕСАЮ́ЗНЫ**, -ая, -ае. Які распаўсюджваўся на ўвесь былы Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, агульны для ўсяго Саюза. *У. з'езд прафсаюзаў. Усесаюзная кніжная палата. У. рэкорд.*

**УСЕ́СЦІСЯ**, уся́дуся, уся́дзешся, уся́дзецца; усе́ўся, усе́лася; уся́дзься; *зак.* **1.** Сесці зручна ці надоўга. *У. на канапе. У. і сядзець.* **2.** *за што* і *з інф.* Сеўшы, прыняцца за якую-н. справу. *У. за шыццё. У. чытаць.* ‖ *незак.* **уса́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца *і* **усяда́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УСЕЎЛА́ДДЗЕ**, -я, *н.* (кніжн.). Неабмежаваная ўлада. *Барацьба супраць усеўладдзя манаполій.*

**УСЕ́ЧАНЫ**, -ая, -ае. У матэматыцы: такі, у якога верхняя частка адсечана плоскасцю. *У. конус.*

**УСЕ́ЯЦЦА**, усе́юся, усе́ешся, усе́ецца; усе́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пакрыцца мноствам чаго-н. *Усеялася неба зорамі. Луг усеяўся кветкамі.* **2.** Кончыць сяўбу, адсеяцца (разм.). *Брыгада ўсеялася.* ‖ *незак.* **усе́йвацца**, -аецца (да 1 знач.).

**УСЕ́ЯЦЬ**, усе́ю, усе́еш, усе́е; усе́й; усе́яны; *зак., што.* **1.** Заняць пасевамі (вялікую плошчу). *У. увесь участак.* **2.** Пакрыць мноствам каго-, чаго-н. *Зоркі ўсеялі неба. Рыбакі ўсеялі ўсе возера* (перан.). ‖ *незак.* **усе́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСЁ**[1], *прысл.* **1.** Увесь час, заўсёды, пастаянна. *Ён усё заняты.* **2.** Да гэтага часу. *Ён усё яшчэ вучыцца.* **3.** Толькі, выключна. *Справа расстроілася, і ўсё з-за вас.* **4.** У спалучэнні са словамі, якія абазначаюць змену прыметы ці нарастанне яе. *Вецер усё мацнее. Усё больш і больш змяркалася.* **5.** У спалучэнні з вышэйшай ступенню і злучнікам «чым» служыць для ўзмацнення процістаўлення. *Занятак не вельмі што, але ўсё лепш, чым сядзець склаўшы рукі.* **6.** Аднак, тым не менш. *Як ён ні стараецца, а ўсё не атрымліваецца.* ◊ **Усё ж, усё ж такі** — тым не менш. *Ён усё ж* або *ўсё ж такі не паехаў.*

**УСЁ**[2] *гл.* увесь.

**УСЁ...** Першая частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. займенніку «усё» і паказвае, што дзеянне і ўласцівасць, выражаныя другой часткай слова, пашыраюцца на ўсё, напр.: *усёабдымны, усёахопны, усёбачны, усёвед, усёдаравальны, усёзнішчальны, усёмагутны, усёпажыральны, усёпераможны, усёсакрушальны.*

**УСЁАБДЫ́МНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які ахоплівае, спасцігае ўсё. *У. розум.* ‖ *наз.* **усёабды́мнасць**, -і, *ж.*

**УСЁДАРАВА́ННЕ**, -я, *н.* (кніжн.). Поўнае дараванне ўсяго, усіх крыўд, зла.

**УСЁЕ́ДНЫ**, -ая, -ае. Які можа есці ўсякую ежу. *Усёедная жывёліна.* ‖ *наз.* **усёе́днасць**, -і, *ж.*

**УСЁЗНА́ЙКА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -найцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -на́ек (разм., іран.). Чалавек, які самаўпэўнена думае, што ён усё ведае.

**УСЁЗНА́ЙСТВА**, -а, *н.* (разм., іран.). Паводзіны, уласцівыя ўсёзнайку.

**УСЁМАГУ́ТНАСЦЬ**, -і, *ж.* (высок.). Бязмежная сіла, магутнасць. *У. чалавечага розуму.*

**УСЁМАГУ́ТНЫ**, -ая, -ае (высок.). Які валодае бязмежнай магутнасцю.

**УСЁ-ТАКІ** *і* (разм.) **УСЁ-ТКІ**, *злуч.* (звычайна ў спалучэнні са злучнікамі «а», «але», «і») і *часц.* Тым не менш, нягледзячы на што-н. *Я многа пражыў на свеце, а ў. такое бачу ўпершыню. У. ты не паехаў.*

**УСКА́КВАЦЬ** *гл.* ускочыць.

**УСКАЛАМУ́ЦІЦЦА** *гл.* каламуціцца.

**УСКАЛАМУ́ЦІЦЬ** *гл.* каламуціць.

**УСКАЛМА́ЦІЦЦА** *гл.* калмаціцца.

**УСКАЛМА́ЦІЦЬ** *гл.* калмаціць.

**УСКАЛУПНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты *і* (разм.) **УСКАЛУПІ́ЦЬ**, -уплю́, -у́піш, -у́піць; -у́плены; *зак., што.* Калупнуўшы, прыўзняць знізу. ‖ *незак.* **ускалу́плiваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **ускалу́пваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСКАЛЫХНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *зак.* **1.** Пачаць калыхацца. *Ад ветру ўскалыхнулася возера.* **2.** *перан.* Прыйсці ў рух, у хваляванне, пачаць праяўляць дзейнасць. *Народ ускалыхнуўся.*

**УСКАЛЫХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што.* **1.** Прымусіць калыхацца. *Вецер ускалыхнуў лісце.* **2.** *перан.* Прывесці ў рух, абудзіць да дзейнасці, усхваляваць. *Страшныя чуткі ўскалыхнулі сяло.*

**УСКАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* Капа́ючы, узрыхліць. *У. агарод.* ‖ *незак.* **уско́пваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уско́пванне**, -я, *н.*

**УСКАРА́БКАЦЦА** *гл.* карабкацца.

**УСКАРА́СКАЦЦА** *гл.* караскацца.

**УСКВА́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* **1.** Сскварыцца да поўнай гатоўнасці. *Сала добра ўскварылася.* **2.** Скварачыся, зменшыцца ў вазе, аб'ёме. *Сала ўскварылася, і з'явілася свабоднае месца на патэльні.* ‖ *зак.* **усква́рвацца**, -аецца.

**УСКВА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што.* Сскварыць да поўнай гатоўнасці. *У. сала.* ‖ *незак.* **усква́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **усква́рванне**, -я, *н.*

**УСКІ́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што.* Кідаючы, ускласці на верх чаго-н. усё, многае. *У. сена на вышкі.*

**УСКІ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -кі́нь; -нуты; *зак., што.* **1.** Рэзка ўзняць уверх. *У. сцяг над калонай. У. галаву. У вочы на каго-н.* (хутка глянуць). **2.** *на што.* Падняўшы ўверх, кінуць. *У. граблі на воз. У. рукзак на плячо.* **3.** *на што.* Надзець, накінуць на сябе (разм.). *У. хустку на плечы.* ‖ *незак.* **ускіда́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **ускі́дваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСКІПЕ́ЦЬ** *гл.* кіпець.

**УСКЛАДНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *зак.* Стаць больш або надта складаным. *Сітуацыя ўскладнілася.* ‖ *незак.* **ускладня́цца**, -яецца.

**УСКЛАДНІ́ЦЬ**, -ню́, -ні́ш, -ні́ць; -ні́м, -ніце́, -ня́ць; -ла́днены; *зак., што.* Зрабіць больш складаным ці надта складаным. *У. задачу.* ‖ *незак.* **ускладня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **ускладне́нне**, -я, *н.*

**УСКЛА́СЦІ**, -ладу́, -ладзе́ш, -ладзе́; -ладзём, -ладзяце́, -ладу́ць; -ла́ў, -ла́ла; -ладзі́; -ла́дзены; *зак.* **1.** *каго-што на што.* Пакласці на што-н., паверх чаго-н. *У. плуг на калёсы.* **2.** *што на што.* Урачыста пакласці. *У. вянок на магілу.* **3.** *што на каго (што).* Даручыць што-н. каму-н. *У. адказнасць на каго-н.* ◊ **Ускласці віну** *на каго* — палічыць вінаватым каго-н. **Ускласці** або **узваліць на плечы** *каго, чые, каму* — абцяжарыць чым-н. (звычайна працай, клопатамі; разм.). ‖ *незак.* **ускладаць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **укла́двацъ**, -аю, -аеш, -ае. ◊ **Ускладаць надзеі** *на каго-што* (кніжн.) — чакаць ад каго-, чаго-н. ажыццяўлення сваіх надзей. ‖ *наз.* **ускладанне**, -я, *н. і* **укла́дванне**, -я, *н.*

**УСКЛІ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* Вымавіць што-н. гучна, усхвалявана, з пачуццём. ‖ *незак.* **усклікаць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСКО́ПВАННЕ** *гл.* ускапаць.

**УСКО́ПВАЦЬ** *гл.* ускапаць.

**УСКО́РАСЦІ**, *прысл.* У хуткім часе, неўзабаве, хутка. *У. адказ быў атрыманы.*

**УСКО́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Не непасрэдны, пабочны; *проціл.* прамы. *Ускосныя звесткі. Ускосныя доказы. Абвінавачванне ўскосна* (прысл.) *датычыць і яе.* **2.** У граматыцы пра перадачу чужой мовы: які выражаецца даданым сказам. *Ускосная мова. Ускоснае пытанне.* ○ **Ускоснае дапаўненне** — у граматыцы: дапаўненне ў любым склоне, акрамя вінавальнага без прыназоўніка. **Ускосны склон** — у граматыцы: усякі склон, акрамя назоўнага.

**УСКО́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *зак.* **1.** *на каго-што.* Скокнуўшы, апынуцца дзе-н. *У. на лаўку.* **2.** Хуткім рухам падняцца з месца. *У. ад спалоху.* **3.** *у што.* Скочыць у сярэдзіну чаго-н. *У. у лодку.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Раптам з'явіцца, узнікнуць (пра прышч, нарыў і пад.). *На лбе ўскочыў гузак.* **5.** *у што.* Імкліва ўвайсці, сілай уварвацца куды-н. *Байцы ўскочылі ў горад.* **6.** *у што.* Трапіць куды-н. выпадкова. *У. у яму.* ‖ *незак.* **ускáкваць**, -аю, -аеш, -ае (да 1—4 знач.).

**УСКРА́ЕК**, -ра́йку, *мн.* -ра́йкі, -ра́йкаў, *м.* Крайняя частка якой-н. прасторы, край стала, ложка і пад. *У. лесу. Сесці на ўскрайку ложка.*

**УСКРА́ІНА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́ін, *ж.* **1.** Край, крайняя частка якой-н. мясцовасці. *У. лесу. На ўскраіне пасёлка.* **2.** Аддаленая ад цэнтра частка горада, якая прымыкае да яго межаў. *Гарадскія ўскраіны.* **3.** Аддаленая, пагранічная тэрыторыя дзяр-

жавы. *Усходняя ў. Беларусі.* ‖ *прым.* **ускраі́нны**, -ая, -ае.

**УСКРА́Й**[1], *прыназ. з Р.* З краю чаго-н. *У. поля была мяккая густая мурава.*

**УСКРА́Й**[2], -ю, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *ускраек. На ўскраі лесу. Легчы на ў. лавы.*

**УСКРУЦІ́ЦЦА**, -учу́ся, -у́цішся, -у́ціцца; *зак.* (разм.). Устаць вельмі рана. *Чаго ты так рана ўскруціўся?* ‖ *незак.* **ускру́чвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УСКРЫ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). Нечакана і адрывіста крыкнуць. *Радасна ў.* ‖ *незак.* **ускры́кваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ускры́к**, -у, *м.*

**УСКУДЛА́ЦІЦЦА** *гл.* кудлаціцца.

**УСКУДЛА́ЦІЦЬ** *гл.* кудлаціць.

**УСЛА́ВІЦЬ**, -ла́ўлю, -ла́віш, -ла́віць; -ла́ўлены; *зак., каго-што.* Праславіць, усхваліць, апець. *У. свой народ.* ‖ *незак.* **услаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е.

**УСЛА́ЦЬ**, усцялю́, усце́леш, усце́ле; усцялі́; усла́ны; *зак., што* і *што чым.* Сцелячы што-н., пакрыць усю паверхню; заняць сабою ўсю паверхню. *У. падлогу дыванамі. Лісце ўслала дол.* ‖ *незак.* **усціла́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **усціла́нне**, -я, *н.*

**УСЛЕ́Д**. **1.** *прысл.* і *прыназ. з Д.* Па слядах каго-н., чаго-н., непасрэдна за кім-, чым-н. *Ісці ў. Глядзець у. цягніку.* **2.** *прысл.* Наўздагон за кім-н. *Крыкнуць у.*

**УСЛО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пераносная лаўка на ножках у сялянскай хаце. ‖ *памянш.* **усло́нчык**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.*

**УСЛУ́ХВАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *зак., у што.* Уважліва прыслухацца, стараючыся пачуць, зразумець што-н. *У. ў гаворку.* ‖ *незак.* **услухо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УСЛЫ́Х**, *прысл.* Так, што чутно іншым, уголас. *Чытаць у.*

**УСЛЯПУ́Ю**, *прысл.* Нічога не бачачы; наўгад. *Страляць у.*

**УСМА́ГЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Зняможаны ад смагі. **2.** Перасохлы ад недахопу вільгаці. *Усмаглыя губы.*

**УСМА́ГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; усма́г, -гла; -ні; *зак.* **1.** Дайсці да знямогласці ад смагі. *Усмаг араты за дзень на полі.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Перасохнуць ад недахопу вільгаці. *Зямля ўсмагла, патрэскалася.*

**УСМА́ЖЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* Смажачыся, згатавацца; добра прасмажыцца. ‖ *незак.* **усма́жвацца**, -аецца.

**УСМА́К**, *прысл.* (разм.). **1.** Са смакам, з апетытам. *У. пад'елі.* **2.** Да поўнага задавальнення. *Выспацца ў.*

**УСМАКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; *зак., што.* Упадабаць (якую-н. страву). *У. смажаныя грыбы.*

**УСМАКТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -мо́кчацца; *зак., у каго-што.* **1.** Упіўшыся, пачаць смактаць. *П'яўка ўсмакталася ў нагу.* **2.** Увабрацца, прасочваючыся. *Вада ўсмакталася ў зямлю.* **3.** Прысмактацца губамі (пра дзіця). ‖ *незак.* **усмо́ктвацца**, -аецца.

**УСМАКТА́ЦЬ**, -макчу́, -мо́кчаш, -мо́кча; -макчы́; -макта́ны; *зак., што.* Увабраць у сябе, паглынуць; усмактаць. *Зямля ўсмактала вільгаць.* ‖ *незак.* **усмо́ктваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСМАЛІ́ЦЬ**[1], -малю, -ма́ліш, -ма́ліць; -ма́лены; *зак., што* (разм.). Добра засмаліць што-н. *У. лодку.*

**УСМАЛІ́ЦЬ**[2], -малю, -ма́ліш, -ма́ліць; -ма́лены; *зак., чым* і *без дап.* (разм.). Моцна ўдарыць. *У. пугай. Замоўкні, бо зараз усмалю!*

**УСМЕ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Міміка твару, губ, вачэй, якая паказвае схільнасць да смеху, выражае радасць, задаволенасць і пад. *Чыстая ў. Вясёлая ў. Хітрая ў.* ‖ *памянш.* **усме́шачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**УСМЕ́ШЛІВЫ**, -ая, -ае. З усмешкай на твары, які часта ўсміхаецца. ‖ *наз.* **усме́шлівасць**, -і, *ж.*

**УСМІХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* Усмешкай выражаць якія-н. пачуцці. *Жыццярадасна ў.* ‖ *зак.* **усміхну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся.

**УСМО́КТВАЦЦА** *гл.* усмактацца.

**УСМО́КТВАЦЬ** *гл.* усмактаць.

**УСМЯ́ГЛЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *усмаглы.*

**УСМЯ́ГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; усмя́г, -гла; -ні; *зак.* Тое, што і *усмагнуць.*

**УСО́БІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -біц, *ж.* Міжусобная варожасць. *Княжацкія ўсобіцы.*

**УСО́ЎВАЦЦА** *гл.* усунуцца.

**УСО́ЎВАЦЬ** *гл.* усунуць.

**УСО́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які высах, стаў вельмі сухім. *Усохлая зямля.* **2.** Які засох, зачах. *Усохлае дрэўца.*

**УСО́ХНУЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -нецца; усо́хся, -хлася, *зак.* Тое, што і *усохнуць* (у 2 знач.). *Зерне ўсохлася.* ‖ *незак.* **усыха́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **усыха́нне**, -я, *н.*

**УСО́ХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; усо́х, -хла; *зак.* **1.** Стаць цвёрдым ад высыхання. *Зямля ўсохла.* **2.** Зменшыцца ў вазе, аб'ёме ад высыхання. *Зерне ўсохла.* **3.** Засохнуць, зачахнуць. *Яблыня ўсохла.* ‖ *незак.* **усыха́ць**, -а́е. ‖ *наз.* **усыха́нне**, -я, *н.*

**УСПАДА́ЦЬ** *гл.* успасці.

**УСПАМІ́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Узнаўленне ў думках таго, што захавалася ў памяці. *Аддацца ўспамінам* (пачаць успамінаць). *Застаўся адзін у. ад чаго-н.* (нічога не засталося; жарт.). **2.** *мн.* Запіскі або расказы пра мінулае. *Пісаць успаміны. Вечар успамінаў.*

**УСПАМІНА́ЦЬ** *гл.* успомніць, успамянуць.

**УСПАМЯНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што, пра каго-што* і *з дадан.* (разм.). Тое, што і *успомніць.* ‖ *незак.* **успаміна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСПАРО́ЦЦА**, -пару́ся, -по́рашся, -по́рацца; -пары́ся; *зак.* (разм.). **1.** *на што.* Тое, што і *напароцца* (у 1 знач.). *У. на патарчаку.* **2.** Рана ўстаць, прачнуцца. *Успароўся ні свет ні зара.* ‖ *незак.* **успо́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УСПАРО́ЦЬ**, -пару́, -по́раш, -по́ра; -пары́; -по́раты; *зак.* **1.** *што.* Распароўшы, адкрыць. *У. мяшок.* **2.** *каго (што).* Рана падняць, разбудзіць або ўзагнаць са свайго месца (разм.). *Сёння ўспаролі мяне на досвітку. У. курыцу з гнязда.* ‖ *незак.* **успо́рваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСПА́СЦІ**, -паду́, -падзе́ш, -падзе́; -падзём, -падзяце́, -паду́ць; -па́ў, -па́ла; -падзі́; *зак.* (разм.). **1.** *на каго-што.* Напасці з мэтай захопу, грабяжу, забойства і пад. *Разбойнікі ўспалі на падарожнага.* **2.** *на каго (што).* Накінуцца на каго-н. з лаянкай, папрокамі. *У. на неслуха.* **3.** *каго-што.* Выпадкова трапіць, набрысці на каго-, што-н. *У. на след.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *на каго (што).* Нечакана авалодаць кім-н., ахапіць каго-н. (пра якое-н. пачуццё). *На яго ўспала лень.* ◊ **Успасці на думку** *каму* (разм.) — прыйсці, з'явіцца ў думках. *Позна мне гэта ўспала на думку.* ‖ *незак.* **успада́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСПАЎЗЦІ́**, -зу́, -зе́ш, -зе́; -зём, -зяце́, -зу́ць; успо́ўз, -паўзла́, -ло́; -зі́; *зак., на што.* Паўзком узабрацца куды-н. або (разм.) павольна ўзысці, уз'ехаць на што-н., куды-н. *Жук успоўз на сцяну. Фурманка ўспаўзла на пагорак.* ‖ *незак.* **успаўза́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСПА́ЦЦА**, -плю́ся, -пі́шся, -пі́цца; -пі́мся, -піце́ся, -пя́цца; -па́ўся, -па́лася; -пі́ся; *зак.* Моцна заснуць.

**УСПЕ́НІЦЦА** *гл.* пеніцца.

**УСПЕ́НІЦЬ** *гл.* пеніць.

**УПЕ́НЬВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што.* Тое, што і *пеніць.*

**УСПЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Тое, што і *паспець*[2]. *Успела сходзіць у магазін да яго закрыцця. У. на цягнік.* ‖ *незак.* **успява́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСПІХА́ЦЬ** *гл.* узапхнуць, успіхнуць.

**УСПІ́ХВАЦЬ** *гл.* узапхнуць, успіхнуць.

**УСПІХНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што на што* (разм.). Тое, што і *узапхнуць. У. па дошцы вялікі камень на калёсы.* ‖ *незак.* **успіха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **успі́хваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСПЛЁСК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Узнятая хваля, а таксама гук, шум, які яна ўтварае. *Усплёскі хваль.*

**УСПЛЁСНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* Плёснуць, з шумам узняць уверх (ваду, вадкасць). *Рыба ўсплёснула ў рацэ.* ‖ *незак.* **усплёскваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСПЛЫ́СЦІ** *і* **УСПЛЫ́ЦЬ**, -ыву́, -ыве́ш, -ыве́; -ывём, -ывяце́, -ыву́ць; усплы́ў, -лыла́, -ло́; *зак.* **1.** Узняцца з глыбіні вады на паверхню. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Стаць вядомым, выкрыцца, выявіцца. *Зноў усплыло гэта пытанне. У. наверх* або *на паверхню* (выявіцца, стаць вядомым). ‖ *незак.* **усплыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСПО́МНІЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; *зак.* Аднавіцца ў памяці. *Успомнілася*

*пераж̀ытае.* ‖ *незак.* **успаміна́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УСПО́МНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *зак., каго-што, пра каго-што* і з дадан. Аднавіць у сваёй памяці. *У. мінулае. У. пра важнае даручэнне.* ‖ *незак.* **успаміна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСПО́РВАЦЦА** *гл.* успароцца.

**УСПО́РВАЦЬ** *гл.* успароць.

**УСПРЫІ́МЛІВЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *успрымальны. Успрыімлівая натура.* ‖ *наз.* **успрыі́млівасць**, -і, *ж.*

**УСПРЫМА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які лёгка ўспрымае што-н. *У. розум. У. да інфекцыйных хвароб чалавек.* ‖ *наз.* **успрыма́льнасць**, -і, *ж.*

**УСПРЫМА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Непасрэднае пачуццёвае адлюстраванне рэчаіснасці ў свядомасці, здольнасць успрымаць, адрозніваць і засвойваць з'явы навакольнага свету. *Законы ўспрымання. Нашы ўспрыманні і ўяўленні.*

**УСПРЫНЯ́ЦЬ**, -ыму́, -ы́меш, -ы́ме; -ыня́ў, -няла́, -ло́; -ымі́; -ыня́ты; *зак., што.* Зразумець і засвоіць. ‖ *незак.* **успрыма́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСПУ́ДЗІЦЦА** *гл.* пудзіцца.

**УСПУ́ДЗІЦЬ** *гл.* пудзіць.

**УСПУХА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* Тое, што і *пухнуць.*

**УСПУ́ХЛЫ**, -ая, -ае. Які ўспух. *Успухлая губа.*

**УСПУ́ХНУЦЬ** *гл.* пухнуць.

**УСПУ́ЧЫЦЦА** *гл.* пучыцца.

**УСПУ́ЧЫЦЬ** *гл.* пучыць.

**УСПУ́ШЫЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ыцца; *зак.* (разм.). Раздуцца (пра жывот). ‖ *незак.* **успу́швацца**, -аецца.

**УСПУ́ШЫЦЬ** *гл.* пушыць.

**УСПЫ́РХНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; *зак.* Пырхнуўшы, узляцець. ‖ *незак.* **успы́рхваць**, -ае.

**УСПЫ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* **1.** Раптоўна разгарэцца, загарэцца. *Успыхнула запалка. Успыхнуў пажар.* **2.** *перан.* Раптоўна пачацца, узнікнуць (пра пачуцці, грамадскія ўзрушэнні і пад.). *Успыхнуў бой. Успыхнула сварка.* **3.** *перан.* Пачырванець (ад хвалявання, збянтэжанасці і пад.). ‖ *незак.* **успы́хваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **успы́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (да 1 і 2 знач.). *У. бензіну. У. тыфу.*

**УСПЯВА́ЦЬ** *гл.* успець.

**УССАДЗІ́ЦЬ**, -аджу́, -а́дзіш, -а́дзіць; -а́джаны; *зак.* **1.** *каго (што) на каго-што.* Падняўшы, пасадзіць, паставіць на што-н. *У. дзіця на воз.* **2.** *што на што.* Шчыльна насадзіць, надзець што-н. *У. вілкі на вілачнік.* ‖ *незак.* **усса́джваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УССЕ́СЦІ**, усся́ду, усся́дзеш, усся́дзе; уссе́ў, уссе́ла; усся́дзь; *зак., на каго-што* (разм.) **1.** Навваліцца ўсім сваім цяжарам. *Двое ўсселі на аднаго.* **2.** Сесці куды-н. у вялікай колькасці. *Мурашкі ўсселі на ногі.* **3.** *перан.* З лютасцю напасці. *Глядзі, уссядуць сабакі — не абаронішся.* **4.** Неўзлюбіўшы каго-н. ці разлаваўшыся на каго-н., пачаць папракаць, чапляцца. *Усселі на чалавека і не даюць яму жыцця.*

**УССУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -су́нь; -нуты; *зак., што на што.* **1.** Сунучы, падняць наверх. *У. бэльку на зруб.* **2.** Абуць, надзець (звычайна наспех, часова; разм.). *У. боты набасанож.* ‖ *незак.* **уссо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСТАВА́ЦЬ** *гл.* устаць.

**УСТА́ВІЦЬ**, -та́ўлю, -та́віш, -та́віць; -та́ўлены; *зак., што.* **1.** *у што.* Паставіць, змясціць у сярэдзіну чаго-н. *У. шыбу ў раму. У. зубы* (штучныя). *У. слова ў размову* (перан.) **2.** *чым.* Заняць, укрыць паверхню. *У. стол ядой.* **3.** *перан., у каго-што* і *каго-што.* Нерухома ўтаропіць на каго-, што-н. (вочы, позірк). *У. позірк у прастору.* ‖ *незак.* **устаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **уста́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **устаўля́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**УСТАЛЯВА́ЦЦА**, -лю́юся, -лю́ешся, -лю́ецца; -лю́йся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Надзейна ўстанавіцца, умацавацца, зрабіцца ўстойлівым, наступіць. *Улада ўсталявалася. Зіма ўсталявалася. Усталявалася цішыня.* **2.** Асесці, уладкавацца дзе-н. *Ён усталяваўся на новым месцы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Наладзіцца, замацавацца, стаць звычаем, традыцыяй. *Паміж імі ўсталяваліся добрыя адносіны. У нас ужо ўсталявалася такая традыцыя.* ‖ *незак.* **усталёўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **усталява́нне**, -я, *н.*

**УСТАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *зак., што.* **1.** Паставіўшы, змясціўшы куды-н., устанавіць належным чынам. *У. станок.* **2.** Зрабіць устойлівым, надзейным; прывесці ў пэўны парадак. *У. уладу. У. жыццё.* ‖ *незак.* **усталёўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **усталёўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **усталява́нне**, -я, *н.*

**УСТАНАВІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -но́віцца; *зак.* Умацавацца, наладзіцца. *У горадзе ўстанавіўся парадак. Устанавілася пагода.* ‖ *незак.* **устана́ўлівацца**, -аецца *і* **устанаўля́цца**, -я́ецца. ‖ *наз.* **устанаўле́нне**, -я, *н.*

**УСТАНАВІ́ЦЬ**, -наўлю́, -но́віш, -но́віць; -но́ўлены; *зак., што.* **1.** Паставіць належным чынам. *У. генератар. У. прыцэл.* **2.** Вызначыць, назначыць, зацвердзіць, увесці ў дзеянне. *У. дзяжурства. У. дні адпачынку. У. нормы выпрацоўкі.* **3.** Наладзіць, ажыццявіць. *У. сувязь з кім-н.* **4.** і з дадан. Выявіць, вызначыць; давесці, адкрыць. *У., што чалавек не вінаваты. У. ісціну.* ‖ *незак.* **устана́ўліваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **устанаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **устано́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **устанаўле́нне**, -я, *н.*

**УСТАНО́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -но́ў, *ж.* Арганізацыя, якая кіруе пэўнай галіной работы, занятая адпаведнай дзейнасцю. *Дзяржаўныя ўстановы. Навуковая ў. Дзіцячыя ўстановы* (дзіцячыя яслі, сады, бальніцы і пад.). ○ **Навучальная ўстанова** — агульная назва школ, тэхнікумаў і пад.

**УСТАНО́ЎКА**, -і, *ДМ* -но́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* устанавіць. **2.** *мн.* -і, -но́вак. Устаноўлены дзе-н. механізм, прыстасаванне. *Буравая ў.* **3.** *мн.* -і, -но́вак. Мэтавая накіраванасць, арыенціроўка на што-н. *У. на высокую якасць прадукцыі. Творчая ў. пісьменніка.* **4.** -і, -но́вак. Накіроўваючае ўказанне, дырэктыва. *Даць, атрымаць устаноўку.* ‖ *прым.* **устано́вачны**, -ая, -ае (да 1, 3 і 4 знач.).

**УСТАНО́ЎЧЫ**, -ая, -ае (афіц.). Які мае сваёй мэтай заснаванне, арганізацыю чаго-н. *У. сход.*

**УСТАНО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік па ўстаноўцы, мантажы чаго-н. *У. машын.* ‖ *ж.* **устано́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**УСТАПЫ́РЫЦЦА** *гл.* тапырыцца.

**УСТАПЫ́РЫЦЬ** *гл.* тапырыць.

**УСТАРАНІ́ЦЦА**, -ранюся, -ро́нішся, -ро́ніцца; *зак.* Ухіліцца ад удзелу ў чым-н. *У. ад спраў.* ‖ *незак.* **устараня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца.

**УСТАРАНІ́ЦЬ**, -раню́, -ро́ніш, -ро́ніць; -ранёны; *зак.* **1.** *што.* Зжыць, ліквідаваць. *У. перашкоды.* **2.** *каго (што).* Звольніць, вызваліць (афіц.). *У. ад выканання абавязкаў.* ‖ *незак.* **устараня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **устаране́нне**, -я, *н.*

**УСТАРЭ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які не адпавядае сучасным патрабаванням, выйшаў з ужытку, моды. *У. погляд. Устарэлае слова.* ‖ *наз.* **устарэ́ласць**, -і, *ж.*

**УСТАРЭ́ЦЬ** *гл.* старэць.

**УСТА́Ў**, -та́ва, *м.* Буйны почырк старажытных лацінскіх, грэчаскіх і славянарускіх рукапісаў, які вызначаўся прамым і вельмі акуратным напісаннем літар. ‖ *прым.* **уста́ўны**, -ая, -ае.

**УСТА́ЎКА**, -і, *ДМ* -та́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* уставіць. **2.** *мн.* -і, -та́вак. Тое, што ўстаўлена. *Устаўкі ў рукапісе.*

**УСТАЎЛЯ́ННЕ** *гл.* уставіць.

**УСТАЎЛЯ́ЦЬ** *гл.* уставіць.

**УСТАЎНЫ́**, -а́я, -о́е. Прыстасаваны для таго, каб устаўляць, устаўлены ў што-н. *Устаўныя шыпы. Устаўныя зубы.*

**УСТА́ЦЬ**, -а́ну, -а́неш, -а́не; *зак.* **1.** Стаць на ногі, прыняць стаячае становішча. *У. з канапы. Рана ў.* (рана падняцца з пасцелі). *Хворая ўстала* (выздаравела). **2.** *перан.* Падняцца, рушыць на здзяйсненне чаго-н. *У. на абарону Радзімы.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра нябесныя свяцілы: з'явіцца на гарызонце, узысці. *Над лесам устала сонца.* **4.** *перан.* Узнікнуць, з'явіцца, паўстаць. *У памяці ўсталі вобразы сяброў.* ‖ *незак.* **устава́ць**, -таю́, -тае́ш, -тае́; -таём, таяце́, -таю́ць; -тава́й. ‖ *наз.* **устава́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**УСТАЯ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -таі́цца; *зак.* **1.** Пра вадкасць: у выніку доўгага стаяння ў пэўных умовах стаць гатовым для ўжывання. *Квас устаяўся.* **2.** *перан.* Стаць з цягам часу ўстойлівым, пастаянным. *Характар устаяўся.* ‖ *незак.* **усто́йвацца**, -аецца.

**УСТАЯ́ЦЬ**, -таю́, -таі́ш, -таі́ць; -таі́м, -таіце́, -тая́ць; -то́й; *зак.* **1.** Утрымацца, захаваць стаячае становішча, не ўпасці. *У. на нагах.* **2.** *перан.* Астацца стойкім, не паддацца чаму-н. *У. перад выпрабаваннямі. У. перад спакусай.* ‖ *незак.* **усто́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСТО́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Апора моста, гідратэхнічнага збудавання. *Устоі мастоў.* **2.** *перан., мн.* Тое, што склалася, устаялася, асновы (у 4 знач.). *Устоі жыцця. Маральныя ўстоі.*

**УСТО́ЙЛІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які стаіць цвёрда, не хістаючыся, не падаючы. *Устойлівая апора. Устойлівая раўнавага.* **2.** *перан.* Які не паддаецца ваганням, пастаянны, стойкі, цвёрды. *Устойлівыя ўраджаі. Устойлівая валюта. У. характар.* ‖ *наз.* **усто́йлівасць**, -і, *ж.*

**УСТО́ЯНЫ**, -ая, -ае. Які стаў гатовым для ўжывання ў выніку доўгага стаяння ў адпаведных умовах. *Устояная налiўка.*

**УСТО́ЯЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -о́іцца; *зак.* (разм.). Тое, што і *устаяцца.* ‖ *незак.* **усто́йвацца**, -аецца.

**УСТО́ЯЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; *зак.* (разм.). Тое, што і *устаяць.* ‖ *незак.* **усто́йваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСТРО́ІЦЦА**, -о́юся, -о́ішся, -о́іцца; *зак.* **1.** Уладкавацца, паступіць куды-н. (на работу). *У. на фабрыку.* **2.** Размясціцца дзе-н.; наладзіць сваё жыццё ў якім-н. месцы. *У. спаць на канапе. У. на кватэру.* ‖ *незак.* **устро́йвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УСТРО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак.* **1.** *што.* Наладзіць, зрабіць, арганізаваць што-н. *У. ілюмінацыю. У. аблаву. У. вечарынку.* **2.** *што.* Учыніць, справіць. *У. скандал. У. штуку* (зрабіць што-н. недарэчнае, нечаканае; разм.). **3.** *каго (што).* Уладкаваць, памясціць куды-н. *У. на службу.* ‖ *незак.* **устро́йваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **устро́йства**, -а, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**УСТРО́ЙСТВА**, -а, *н.* **1.** *гл.* устроіць. **2.** Тэхнічная канструкцыя, прыбор, механізм, прыстасаванне (кніжн.). *Транспартнае ў. Рэгулюючае ў.*

**УСТРЫВО́ЖЫЦЦА** *гл.* трывожыцца.

**УСТРЫВО́ЖЫЦЬ** *гл.* трывожыць.

**УСТРЫ́МАНЫ**, -ая, -ае. Які ўмее ўстрымлівацца, пазбягае празмернасцей. ‖ *наз.* **устры́манасць**, -і, *ж.*

**УСТРЫМА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., ад чаго.* Стрымаць сябе, адмовіцца ад якога-н. дзеяння. *У. ад спіртных напіткаў. У. пры галасаванні* (не галасаваць ні за, ні супраць). ‖ *незак.* **устры́млівацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **устрыма́нне**, -я, *н.*

**УСТУ́П**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Частка чаго-н., якая ўтварае ступень, выемку. *У. катлавана. Уступы гор.*

**УСТУ́П**[2], -у, *м.* Пачатковая частка чаго-н., уводзіны да чаго-н. *У. да манаграфіі. Аркестравы ў. да оперы.*

**УСТУПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. У граматыцы: які выражае ўступку, дапушчэнне, процілеглую ўмову. *У. злучнік. У. дадаены сказ.*

**УСТУ́ПІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). Які мае ўступы[1]. *У. бераг. Уступістая вежа.* ‖ *наз.* **усту́пістасць**, -і, *ж.*

**УСТУПІ́ЦЦА**, -уплюся, -у́пішся, -у́піцца; *зак., за каго-што.* Узяць пад ахову каго-, што-н. *У. за пакрыўджанага. У. за чые-н. інтарэсы.* ‖ *незак.* **уступа́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УСТУПІ́ЦЬ**[1], -уплю́, -у́піш, -у́піць; *зак.* **1.** *у што.* Увайсці, уехаць куды-н. *Войскі ўступілі ў горад.* **2.** *у што.* Стаць членам, дзеячам, удзельнікам чаго-н. *У. у прафсаюз. У. у калгас.* **3.** *у што.* Пачаць рабіць што-н. або прыйсці ў які-н. стан (у адпаведнасці са знач. наступнага назоўніка). *У. у бой. У. у спрэчку. У. у шлюб. У. у законную сілу. Новы завод уступіў у строй.* **4.** *у што.* Стаць нагой у што-н. *У. у лужыну.* **5.** *на што.* Ступіць на каго-, што-н. *У. на нагу.* ‖ *незак.* **уступа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е (да 1, 2, 3 і 4 знач.). ‖ *наз.* **уступле́нне**, -я, *н.* (да 1, 2 і 3 знач.).

**УСТУПІ́ЦЬ**[2], -уплю́, -у́піш, -у́піць; -у́плены; *зак.* **1.** *каго-што каму.* Добраахвотна адмовіцца на карысць іншага. *У. свае пазіцыі. У. месца. У. дарогу каму-н.* **2.** *каму-чаму* і *без дап.* Пайсці на ўступкі, згадзіцца з чым-н. *У. просьбам.* **3.** *каму-чаму ў чым.* Аказацца горшым за каго-, што-н. у якіх-н. адносінах. *Ён нікому не ўступіць у храбрасці. Яго веды не ўступяць вашым.* **4.** *што каму.* Прадаць або, прадаючы, аддаць дзешавей. *У. рэч за пяцьдзясят рублёў.* ‖ *незак.* **уступа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **усту́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* (да 1, 2 і 4 знач.).

**УСТУ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *ж.* **1.** *гл.* уступіць[2]. **2.** *мн.* -і, -пак. Адказ ад чаго-н. на карысць іншага. *Ісці на ўступкі.* **3.** *мн.* -і, -пак, *перан.* Кампраміснае рашэнне, паслабленне ў чым-н. *Зрабіць уступку традыцыі.* **4.** Скідка з назначанай цаны. *Прадаць тавар з уступкай.*

**УСТУ́ПНЫ**[1], -ая, -ае. Які мае адносіны да ўступа[1], мае від уступа, размешчаны ў выглядзе ўступа. *Уступная выемка. Калоны рухаліся ва ўступным парадку.*

**УСТУ́ПНЫ**[2], -ая, -ае. Які з'яўляецца ўступам[2] да чаго-н.; пачатковы. *Уступнае слова.* **2.** Звязаны з паступленнем куды-н. *У. экзамен. У. ўзнос.*

**УСТУ́ПЧАТЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *уступісты.* ‖ *наз.* **усту́пчатасць**, -і, *ж.*

**УСТУ́ПЧЫВЫ**, -ая, -ае. Гатовы на ўступкі, згаворлівы, памяркоўны. *У. чалавек. У. характар.* ‖ *наз.* **усту́пчывасць**, -і, *ж.*

**УСТЫКА́ЦЬ** *гл.* узаткнуць.

**УСУКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* усучу́, усу́чаш, усу́ча; усука́й *і* усучы́; усука́ны; *зак., што.* Суканнем увіць, уплесці. *У. шчаціну ў дратву.* ‖ *незак.* **усу́кваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСУМНІ́ЦЦА**, -ню́ся, -ні́шся, -ні́цца; -ні́мся, -ніце́ся, -ня́цца; *зак., у кім-чым* і *без дап.* Адчуць сумненне, пачаць сумнявацца ў кім-, чым-н. *У. ў праўдзівасці пачутага. Пачуў і ўсумніўся.*

**УСУ́НУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ньса; *зак., у што.* **1.** Прасунуцца ўнутр чаго-н., паказацца ў чым-н. *У дзверы ўсунулася галава хлопчыка.* **2.** Уваліцца, трапіць у што-н. (разм.). *У. ў студыю.* **3.** Увайсці павольна, ледзь перастаўляючы ногі (разм.). *У хату ўсунулася старая жанчына.* **4.** Умяшацца, ублытацца ў што-н. (разм.). *У. ў спрэчку.* ‖ *незак.* **усо́ўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УСУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; усу́нь; -нуты; *зак., што ў што.* **1.** Сунуўшы, змясціць унутр. *У. шуфляду ў стол. У. руку ў кішэнь.* **2.** Прасунуць у вузкую адтуліну. *У. нітку ў іголку.* **3.** Прасунуць унутр чаго-н. *У. галаву ў дзверы.* ‖ *незак.* **усо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСУР'ЁЗ**, *прысл.* (разм.). Сур'ёзна, не жартам. *Заняцца справай у.*

**УСУТЫ́Ч**, *прысл.* Вельмі блізка, ушчыльную. *Ісці ў. адзін каля аднаго.*

**УСУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* Колькасць страчанага прадукта пры высыханні. *Норма ўсушкі.*

**УСХАДЗІ́ЦЦА**, -хаджу́ся, -хо́дзішся, -хо́дзіцца; *зак.* **1.** Дайсці да крайняй ступені праяўлення чаго-н.; пачаць моцна дурэць, сваволіць. *Дзеці ўсхадзіліся, не суняць.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачаць моцна бушаваць (пра з'явы прыроды). *Усхадзіўся вецер.* ‖ *незак.* **усхо́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УСХАПІ́ЦЦА**, -хаплю́ся, -хо́пішся, -хо́піцца; *зак.* **1.** Хуткім рухам падняцца з месца. *У. з крэсла.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Хутка і нечакана пачацца. *Пасля адлігі ўсхапіўся мароз. Усхапілася полымя.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Нечакана ўтварыцца, з'явіцца (пра мазалі, прышчы і пад.). *Усхапіліся крывавыя мазалі.* ‖ *незак.* **усхо́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УСХВАЛЯВА́НЫ**, -ая, -ае. Які знаходзіцца ў стане хвалявання, выражае хваляванне. *У. выгляд. У. голас. Гаварыць усхвалявана* (прысл.). ‖ *наз.* **усхвалява́насць**, -і, *ж.*

**УСХВАЛЯВА́ЦЦА** *гл.* хвалявацца.

**УСХВАЛЯВА́ЦЬ** *гл.* хваляваць.

**УСХВАЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., каго-што* (кніжн.). Расхвальваць, праслаўляць.

**УСХЛІ́П**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гук, які ўтвараецца пры плачы.

**УСХЛІ́ПВАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Сутаргава ўдыхаць паветра пры плачы. ‖ *аднакр.* **усхлі́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **усхлі́пванне**, -я, *н.*

**УСХО́Д**[1], -у, *М* -дзе, *м.* **1.** Паяўленне, час, а таксама месца паяўлення свяціла над гарызонтам. *Устаць да ўсходу сонца.* **2.** Адзін з чатырох напрамкаў свету, процілеглы захаду, і напрамак прасторы, процілеглы захаду; частка гарызонту, дзе ўсходзіць Сонца. **3.** (з вялікай літары). Краіны, размешчаныя ў гэтым напрам-

ку і супрацьпастаўленыя Заходняй Еўропе і Амерыцы. *Падарожжа на У. Блізкі У. Далёкі У.* ○ **Паўднёвы ўсход** — напрамак паміж поўднем і ўсходам. **Паўночны ўсход** — напрамак паміж поўначчу і ўсходам. ‖ *прым.* **усхо́дні**, -яя, -яе.

**УСХО́Д**[2], -у, *М* -дзе, *м.* Верхняя больш высокая частка ступні, пад'ём. *Боты ціснуць на ўсходзе.*

**УСХОДАЗНА́ВЕЦ**, -на́ўца, *мн.* -на́ўцы, -на́ўцаў, *м.* Вучоны, спецыяліст па ўсходазнаўстве.

**УСХОДАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Сукупнасць навук пра краіны Усходу. ‖ *прым.* **усходазна́ўчы**, -ая, -ае.

**УСХО́ДЖВАЦЦА** *гл.* усходзіцца.

**УСХО́ДЖЫ**, -ая, -ае. Пра насенне: здольны прарастаць, даваць усходы. *Усходжае насенне.* ‖ *наз.* **усхо́джасць**, -і, *ж.* *Праверыць насенне на ў.*

**УСХО́ДЗІЦЬ** *гл.* узысці.

**УСХО́ДКІ**, -аў. Прыступкі, па якіх падымаюцца ўгору.

**УСХО́ДЫ**[1], -аў. Першыя парасткі пасеваў. *Яравыя ў.*

**УСХО́ДЫ**[2], -аў. Прыступкі лесвіцы. *Спускацца па ўсходах.*

**УСХО́ПЛІВАЦЦА** *гл.* усхапіцца.

**УСЦЕРАГЧЫ́**, -рагу́, -ражэ́ш, -ражэ́; -ражо́м, -ражаце́, -рагу́ць; усцяро́г, -цераглá; -ло́; -ражы́; -ражо́ны; *зак., каго-што.* Уберагчы, ахоўваючы ад каго-, чаго-н. ‖ *незак.* **усцерага́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСЦЕРАГЧЫ́СЯ**, -рагу́ся, -ражэ́шся, -ражэ́цца; -ражо́мся, -ражаце́ся, -рагу́цца; усцяро́гся, -цераглáся; -ло́ся; -ражы́ся; *зак.* Зберагчы, усцерагчы сябе ад чаго-н. *У. ад небяспекі.* ‖ *незак.* **усцерага́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УСЦЕ́ШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *зак.* Знайсці для сябе задаволенне, уцеху ў кім-, чым-н., узрадавацца. *У. ад сустрэчы са старым знаёмым.* ‖ *незак.* **усце́швацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УСЦЕ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; *зак., каго (што).* Выклікаць у каго-н. пачуццё задаволенасці, радасці; супакоіць. *Навіна ўсцешыла чалавека. У. брата добрым словам.* ‖ *незак.* **усце́шваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСЦІЛА́ЦЬ** *гл.* услаць.

**УСЦЯГНУ́ЦЦА**, -ягну́ся, -я́гнешся, -я́гнецца; -ягні́ся; *зак.* (разм.). **1.** З цяжкасцю ўзысці, падняцца на верх чаго-н. *Ледзь усцягнуўся на ўзгорак.* **2.** Устаць, падняцца з пасцелі. *Чаго ты ўсцягнуўся з тэмпературай?* ‖ *незак.* **усця́гвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УСЦЯГНУ́ЦЬ**, -ягну́, -я́гнеш, -я́гне; -ягні́; -я́гнуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Цягнучы, падняць наверх або з цяжкасцю ўнесці, узвезці на што-н. высокае. *У. мех на вышкі.* **2.** *што.* Надзець, апрануць з цяжкасцю або накрыцца чым-н., нацягнуць на сябе што-н. (разм.). *Ледзь ужо ўсцягнула гэту сукенку. У. ватовую коўдру.* ‖ *незак.* **усця́гваць**, -аю, -аеш, -ае *і* **усцяга́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСЧАПІ́ЦЦА**, -чаплю́ся, -чэ́пішся, -чэ́піцца; *зак.* **1.** *на каго-што.* Ухапіўшыся за каго-, што-н., павіснуць. *У. на шыю.* **2.** *на што.* Узлезці куды-н. (чапляючыся, карабкаючыся; разм.). *У. на дрэва.* ‖ *незак.* **усчэ́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УСЧАПІ́ЦЬ**, -чаплю́, -чэ́піш, -чэ́піць; -чэ́плены; *зак., што.* **1.** *на каго-што.* Павесіць, начапіць. *У. стрэльбу на плячо.* **2.** *на каго і без займ.* Надзець на сябе або на каго-н. вопратку (разм.). *У. камізэльку.* ‖ *незак.* **усчэ́пліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УСЧА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., узачне́цца; усча́ўся, -чала́ся, -ло́ся; *зак.* (разм.). Пачацца, распачацца. *Усчалася сварка.* ‖ *незак.* **усчына́цца**, -а́ецца.

**УСЧА́ЦЬ**, узачну́, узачне́ш, узачне́; узачнём, узачняце́, узачну́ць; усча́ў, -чала́, -ло́; узачні́; усча́ты; *зак., што і чаго* (разм.). Пачаць, распачаць. *У. сварку.* ‖ *незак.* **усчына́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСЫНАВІ́ЦЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* (афіц.). Чалавек, які ўсынавіў каго-н. ‖ *ж.* **усынаві́цельніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**УСЫНАВІ́ЦЬ**, -наўлю́, -наві́ш, -наві́ць; -наві́м, -наві́це, -навя́ць; -но́ўлены; *зак., каго (што).* Прыняць у сям'ю (хлопчыка, дзяўчынку) на правах роднага сына, дачкі. *У. сірату.* ‖ *незак.* **усынаўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **усынаўле́нне**, -я, *н.*

**УСЫ́ПАЦЬ**, -плю, -плеш, -пле; усы́п; -паны; *зак.* **1.** *што і чаго ў што.* Сыплючы, змясціць. *У. цукар у шклянку.* **2.** *што.* Пакрыць паверхню чаго-н. чым-н. сыпучым, дробным. *Снег усыпаў зямлю. Зоркі ўсыпалі неба* (перан.). **3.** *каму.* Моцна вылаяць або пабіць каго-н. (разм.). ‖ *незак.* **усыпа́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УСЫПІ́ЦЬ**, -плю́, -пі́ш, -пі́ць; -пі́м, -піце́, -пя́ць; -плёны; *зак.* **1.** *каго (што).* Прымусіць заснуць. *У. дзіця. У. хворага перад аперацыяй.* **2.** *перан., каго (што).* Давесці да паўсоннага стану. *Нудная кніжка ўсыпіла яго.* **3.** *перан., што.* Аслабіць, прымусіць бяздзейнічаць (высок.). *У. пільнасць.* ‖ *незак.* **усыпля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **усыпле́нне**, -я, *н.*

**УСЫПЛЯ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які выклікае сон, аднастайна-манатонны. *У. шум дажджу. У. голас.* ‖ *наз.* **усыпля́льнасць**, -і, *ж.*

**УСЫХА́ННЕ** *гл.* усохнуцца, усохнуць.

**УСЫХА́ЦЦА** *гл.* усохнуцца.

**УСЫХА́ЦЬ** *гл.* усохнуць.

**УСЮ́ДЫ**, *прысл.* У кожным месцы, паўсюдна, скрозь. *У. пабываць. У. было мокра і гразка.*

**УСЮДЫІ́СНЫ**, -ая, -ае (іран.). Які ўсюды паспявае, ва ўсім прымае ўдзел. *Усюдыісныя рэпарцёры.*

**УСЮДЫХО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтамашына на гусенічным ходу, прызначаная для язды ў цяжкіх дарожных умовах.

**УСЮДЫХО́ДНЫ**, -ая, -ае. Здольны перамяшчацца ў цяжкіх дарожных умовах. *Усюдыходныя аўтамашыны.*

**УСЯ́** *гл.* увесь.

**УСЯ...** (*гл.* **усе...**). Першая частка складаных слоў, якая ўжыв. замест «усе...», калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *усямерны, усяночны.*

**УСЯВЫ́ШНІ**, -яга, *м.* У веруючых: урачыстая назва Бога.

**УСЯГО́**. **1.** *гл.* увесь. **2.** *прысл.* Разам, нагул. *У. зарабілі сто рублёў.* **3.** *часц.* Толькі, не больш чым. *Гэта каштуе ў. пяць рублёў.*

**УСЯДА́ЦЦА** *гл.* усесціся.

**УСЯ́К**, *прысл.* (разм.). **1.** Па-рознаму, неаднолькава. *У. бывае.* **2.** Усімі спосабамі. *У. стараецца выкруціцца.*

**УСЯКА́ЦЬ** *гл.* усячы.

**УСЯ́КІ**, -ая, -ае, *займ. азнач.* **1.** Кожны, любы. *У. раз адно і тое ж. Усякая птушка сваё гняздо бароніць* (прыказка). **2.** Розны, усялякі. *Усякія людзі бываюць.* **3.** У спалучэнні з прыназоўнікам «без», узмацняючы прыназоўнік, азначае: зусім без. *Без усякай мэты. Без усякіх цяжкасцей.*

**УСЯЛЕ́НСКІ**, -ая, -ае (уст.). Сусветны. *Усяленскія саборы.*

**УСЯЛІ́ЦЦА**, усялю́ся, усе́лішся, усе́ліцца; *зак.* **1.** Заняць месца на пражыванне; пасяліцца. *У. ў новую хату.* **2.** *перан.* З'явіўшыся, апанаваць, агарнуць (высок.). *У душу ўсяліўся жах.* ‖ *незак.* **усяля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **усяле́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**УСЯЛІ́ЦЬ**, усялю́, усе́ліш, усе́ліць; усе́лены; *зак.* **1.** *каго (што) у што.* Пасяліцца на жыхарства. *У. новых жыхароў у кватэру.* **2.** *перан., што ў каго-што.* Пасеяць, выклікаць (высок.). *У. надзею ў каго-н. У. трывогу ў сэрца.* ‖ *незак.* **усяля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **усяле́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**УСЯЛЯ́К**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *усяк. У. бывае ў жыцці. Ён у. лаяўся тут.*

**УСЯЛЯ́КІ**, -ая, -ае, *займ. азнач.* **1.** Самы разнастайны, розны. *Расказваць пра ўсялякія здарэнні. У жыцці ўсялякае бывае* (наз.). **2.** Тое, што і *усякі* (у 3 знач.). *Дзень прайшоў без ўсялякіх здарэнняў. Без усялякай хітрасці.*

**УСЯМЕ́РНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які ажыццяўляецца ўсімі магчымымі мерамі. *Усямерная падтрымка. Усямерна* (прысл.) *падтрымліваць добрую ініцыятыву.*

**УСЯМЁХ**, *прысл.* У колькасці сямі чалавек (толькі пра мужчын або толькі пра жанчын).

**УСЯНО́ЧНАЯ**, -ай, *ж.* Царкоўная начная служба.

**УСЯРЭ́ДЗІНЕ**, *прысл.* і *прыназ.* **1.** *прысл.* Унутры, у цэнтры чаго-н. *Мыць бутэльку ў.* **2.** *прыназ.* з *Р.* Пасярод. *У. двара.*

**УСЯЧЫ́**, усяку́, усячэ́ш, усячэ́; усячо́м, усечаце́, усяку́ць; усе́к, -кла; усячы́; усе́чаны; *зак., што.* **1.** Адсякаючы, укараціць; змагчы адсячы (пераважна з адмоўем). *У. касільна. Палена цвёрдае — не ўсячэш.* **2.** Урабіць у высечаную адтуліну (спец.). *У. перагародку ў сцяну.* **3.** *перан.* Паменшыць колькасць складоў у радку (кніжн.). *У. склад у вершаваным радку.* ‖

*незак.* **усякáць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **усячэ́нне**, -я, *н.*

**УСЯ́ЧЫНА**, -ы, *ж.* У выразе: **усякая ўсячына** (разм.) — усё, што хочаш, сумесь чаго-н. рознага, разнастайнага.

**УТАІ́ЦЬ**, утаю, утóіш, утóіць; утóены; *зак., што.* **1.** Захаваць у тайне, скрыць ад іншых. *У. праўду.* **2.** Тайна прысвоіць. *У. чужыя грошы.* || *незак.* **утóйваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **утóйванне**, -я, *н.*

**УТАЙМАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па ўтаймаванні дзікіх звяроў. || *ж.* **утаймавáльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**УТАЙМАВА́ЦЦА**, -мýюся, -мýешся, -мýецца; -мýйся; *зак.* **1.** Уціхамірыцца, супакоіцца (пра чалавека); стаць паслухмяным, падпарадкавацца волі чалавека (пра жывёл). *Весёлая публіка нарэшце ўтаймавалася. Звер ўтаймаваўся.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Зменшыцца або суняцца (пра боль і пад.), заглушыцца (пра якое-н. пачуццё); прыйсці ў нерухомы стан. *Боль утаймаваўся. Хваляванне ўтаймавалася.* || *незак.* **утаймóўвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УТАЙМАВА́ЦЬ**, -мýю, -мýеш, -мýе; -мýй; -мавáны; *зак.* **1.** *каго (што).* Уціхамірыць, супакоіць (чалавека); падпарадкаваць волі чалавека (дзікую або непаслухмяную жывёлу). *У. разлаванага чалавека. У. тыгра.* **2.** *што.* Зменшыць, аслабіць, прыглушыць праяўленне чаго-н.; справіцца з якімі-н. стыхійнымі з'явамі. *У. боль. У. смагу. У. пажар.* || *незак.* **утаймóўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **утаймóўванне**, -я, *н.* || *наз.* **утаймавáнне**, -я, *н.*

**УТАМІ́ЦЦА** *гл.* таміцца.

**УТАМІ́ЦЬ**, утамлю, утóміш, утóміць; утóмлены; *зак., каго-што.* Давесці да ўтомы, стаміць, змарыць. *У. каня. У. рукі.* || *незак.* **утамлáць**, -áю, -áеш, -áе.

**УТАМЛЯ́ЦЦА**, -áюся, -áешся, -áецца; *незак.* Тое, што і *таміцца* (у 1 знач.).

**УТАПІ́ЗМ**, -у, *м.* Нязбытныя мары, схільнасць, імкненне да ўтопій.

**УТАПІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыхільнік утапічнага сацыялізму. **2.** Фантазёр, летуценнік. || *ж.* **утапі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **утапі́сцкі**, -ая, -ае.

**УТАПІ́ЦЦА** *гл.* тапіцца[1].

**УТАПІ́ЦЬ** *гл.* тапіць[1].

**УТАПІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* утопія. **2.** Які з'яўляецца ўтопіяй, нязбытны. || *наз.* **утапі́чнасць**, -і, *ж.*

**УТАПТА́ЦЬ**, утапчý, утóпчаш, утóпча; утапчы́; утаптáны; *зак., што.* **1.** Умяць, топчучы нагамі. *У. зямлю.* **2.** *у што.* Топчучы, уціснуць. *У. акурак у зямлю. У. у гразь каго-н.* (перан.). **3.** Складаючы, уціснуць куды-н. усё, многае (разм.) або прыціснуць, умяць. *У. усе рэчы ў чамадан. У. сена.* **4.** *перан.* Многа з'есці чаго-н. (разм.). *У. гаршчок кашы.* || *незак.* **утóптваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УТАРГАВА́ЦЬ**, -гýю, -гýеш, -гýе; -гýй; -гавáны; *зак., што* і *чаго.* Набыць якую-н. суму грошай ад продажу чаго-н.; выручыць. *У. многа грошай.* || *незак.* **утаргóўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УТАРО́ПІЦЦА**, -плюся, -пішся, -піцца; *зак., у каго-што.* Не зводзячы вачэй, углядзецца ў каго-, што-н.; стаць пільным, накіраваным (пра вочы, позірк). *Чаго ты ў мяне ўтаропіўся? Яго позірк утаропіўся ўдаль.* || *незак.* **утарóплівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УТАРО́ПІЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -плены; *зак., што ў каго-што.* Уставіць вочы, позірк на каго-, што-н. *У. вочы ў падлогу.* || *незак.* **утарóпліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УТАЧЫ́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., утóчыцца; *зак.* Сточваючыся, зрабіцца вузейшым (пра лязо). || *незак.* **утóчвацца**, -аецца.

**УТАЧЫ́ЦЦА**[2], утачýся, утóчышся, утóчыцца; *зак., у што.* Точачы, пранікнуць унутр ці ў глыбіню чаго-н. *Крот утачыўся ў зямлю.* || *незак.* **утóчвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УТАЧЫ́ЦЬ**[1], утачý, утóчыш, утóчыць; утóчаны; *зак., што.* Сточваючы, звузіць шырыню (ляза). || *незак.* **утóчваць**, -аю, -аеш, -ае. || *наз.* **утóчка**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* і **утóчванне**, -я, *н.*

**УТАЧЫ́ЦЬ**[2], утачý, утóчыш, утóчыць; утóчаны; *зак., што ў што.* Шыючы, уставіць кавалак матэрыі. *У. клін у рукаў.* || *незак.* **утóчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УТВАРЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -вóрыцца; *зак.* Атрымацца, узнікнуць. *Утварыліся снежныя завалы. Утварылася новае таварыства.* || *незак.* **утварáцца**, -áецца. || *наз.* **утварэ́нне**, -я, *н.*

**УТВАРЫ́ЦЬ**, -варý, -вóрыш, -вóрыць; -вóраны; *зак., што.* **1.** Стварыць сабой, выклікаць сабой узнікненне чаго-н. *Лініі ўтварылі прамы вугал. Вада ўтварыла ў зямлі паглыбленне.* **2.** Арганізаваць, заснаваць. *У. ваенна-палітычны саюз.* **3.** Зрабіць што-н. нечаканае, непажаданае, напракудзіць (разм.). *Ай, што вы, дзеці, тут утварылі!* || *незак.* **утварáць**, -áю, -áеш, -áе. || *наз.* **утварэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**УТВАРЭ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* утварыцца, утварыць. **2.** *мн.* -і, -яў. Тое, што ўтварылася з чаго-н. *Тлушчавыя ўтварэнні.*

**УТКА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., утчэ́цца; *зак.* Паменшаць у працэсе ткання. *Многа пражы ўжо ўткалася.* || *незак.* **утыкáцца**, -áецца.

**УТКА́ЦЬ**, уткý, утчэ́ш, утчэ́; утчóм, утчацé, уткýць; уткáў, -кáла; утчы́; уткáны; *зак.* **1.** *што ў што.* Уставіць тканнем нітку, паласу ў тканіну. **2.** *што* і *чаго.* Вырабіць тканнем. *У. пяць губак палатна.* **3.** *што чым.* Пакрыць скрозь тканым узорам. *У. дыван кветкамі.* **4.** *што.* Зрасходаваць у працэсе ткання. *За дзень уткала кілаграм пражы.* || *незак.* **утыкáць**, -áю, -áеш, -áе.

**УТКНУ́ЦЦА**, -нýся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, -няцéся, -нýцца; -ні́ся; *зак., у што.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Убіцца вострым канцом у што-н. *Кап'ё ўткнулася ў зямлю.* **2.** Ткнуўшыся, уперціся, зарыцца ў што-н. *У. галавой у падушку.* **3.** *перан.* Паглыбіцца ў які-н. занятак, уважліва разглядаючы што-н., займаючыся чым-н. (неадабр.). *У. ў кнігу.* **4.** *перан.* Умяшацца, прыняць удзел у чым-н. (разм., неадабр.). *Усюды ты ўткнешся.* || *незак.* **утыкáцца**, -áюся, -áешся, -áецца.

**УТКНУ́ЦЬ**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ні́; -нýты; *зак., што ў што.* **1.** Прымусіць пранікнуць, увайсці, усадзіць што-н. вострае, тонкае. *У. іголку ў клубок.* **2.** Схаваць, укрыць у што-н. *У. твар у каўнер.* **3.** Уперці ў што-н. *У. нос у шыбу.* ◊ **Уткнуць нос** *у што* (разм., неадабр.) — паглыбіцца ў разгляданне чаго-н., пераважна ў чытанне. *Сядзеў, уткнуўшы нос у кніжку.* || *незак.* **утыкáць**, -áю, -áеш, -áе.

**УТЛУМА́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны; *зак., што каму* (разм.). Тлумачачы, прымусіць каго-н. зразумець, засвоіць што-н. *У. правіла.* || *незак.* **утлумáчваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УТО́ЙВАННЕ** *гл.* утаіць.

**УТО́ЙВАЦЬ** *гл.* утаіць.

**УТО́К**, уткý, *м.* (спец.). Папярочныя ніткі тканіны, якія пераплятаюцца з падоўжнымі (асновай). || *прым.* **утóчны**, -ая, -ае.

**УТО́МА**, -ы, *ж.* (разм.). Стан утомленага, пачуццё стомленасці ад працы; стома. *Адчуць утому.*

**УТО́МЛЕНЫ**, -ая, -ае. Абяссілены, зmodule, зморany цяжкай працай, іншымі заняткамі; які выражае зморанасць. *У. выгляд. У. дарогай.* || *наз.* **утóмленасць**, -і, *ж.*

**УТО́МНЫ**, -ая, -ае (разм.). Які даводзіць да стомы, зморанасці. *Утомная дарога. Утомная гарачыня.* || *наз.* **утóмнасць**, -і, *ж.*

**УТО́ПІЯ**, -і, *ж.* Нешта фантастычнае, нязбытнае, неажыццявімая мара [паводле назвы рамана англійскага пісьменніка 16 ст. Т.Мора, які апісаў уяўны ідэальны грамадскі лад будучыні]. || *прым.* **утапі́чны**, -ая, -ае. *У. сацыялізм.*

**УТО́ПТВАЦЬ** *гл.* утаптаць.

**УТО́РА**[1], -ы, *мн.* -ы, утóр, *ж.* (спец.). Унутраная нарэзка, у якую ўстаўляецца дно ў бочцы, цэбры і пад.

**УТО́РА**[2], -ы, *мн.* -ы, утóр, *ж.* (спец.). Другі голас у музычнай партыі.

**УТО́РКНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак., у што.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Тое, што і *уткнуцца* (у 1 знач.). *Кап'ё ўторкнулася ў зямлю.* **2.** Уперціся, уткнуцца ў што-н. *Лодка ўторкнулася носам у пясок. У. твар у падушку.* **3.** Тое, што і *уткнуцца* (у 3 знач.). *У. ў газету.* || *незак.* **утóрквацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УТО́РКНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што ў што.* Уткнуць, усадзіць што-н. вострае, тонкае ў глыб або ўнутр чаго-н. *У. кассё ў зямлю.* || *незак.* **утóркваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УТО́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак., каму-чаму.* **1.** Выконваць другую партыю пры спяванні або ігры на музычным ін-

струменце (спец.). *Бас уторыць тэнару.* **2.** Паўтараць якія-н. гукі. *Лясное рэха ўторыць стуку сякеры.*

**УТО́ЧВАННЕ** *гл.* утачыць[1].

**УТО́ЧВАЦЦА**[1] *гл.* утачыцца[1].

**УТО́ЧВАЦЦА**[2] *гл.* утачыцца[2].

**УТО́ЧВАЦЬ**[1] *гл.* утачыць[1].

**УТО́ЧВАЦЬ**[2] *гл.* утачыць[2].

**УТО́ЧКА**[1], -і, *ДМ* -чцы, *ж.* **1.** *гл.* утачыць[1]. **2.** *мн.* -і, -чак. Сточаная частка чаго-н.

**УТО́ЧКА**[2], -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Тое, што ўшыта ў што-н.

**УТО́ЧНЫ** *гл.* уток.

**УТРАІ́Х**, *прысл.* Колькасцю ў тры асобы (рознага полу) або істоты (ніякага роду). *Жыць у кватэры ў.*

**УТРАЙНЕ́**, *прысл.* У тры разы больш. *Заплаціць у.*

**УТРАМБАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -бу́ецца; *зак.* Стаць утрамбаваным. *Дарога ўтрамбавалася.*

**УТРАМБАВА́ЦЬ** *гл.* трамбаваць.

**УТРАМБО́ЎВАННЕ** *гл.* трамбаваць.

**УТРАМБО́ЎКА** *гл.* трамбаваць.

**УТРАПЕ́ННЕ**, -я, *н.* Неўтаймаванае праяўленне якіх-н. пачуццяў, безразважнасць, шаленства.

**УТРАПЁНЫ**, -ая, -ае. **1.** Раз'юшаны, ашалелы. *Чаго равеш, як у.!* **2.** Нястрыманы ў праяўленні якіх-н. пачуццяў, які выражае ўтрапенне. *У. позірк.* ‖ *наз.* **утрапёнасць**, -і, *ж.*

**УТРАСА́ЦЦА** *гл.* утрэсціся.

**УТРАСА́ЦЬ** *гл.* утрэсці.

**УТРАЯ́**, *прысл.* У тры разы. *У. больш.*

**УТРО́ІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -о́іцца; *зак.* Павялічыцца ўтрая, патроіцца. *Намаганні ўтроіліся.* ‖ *незак.* **утро́йвацца**, -аецца; *наз.* **утро́йванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **утрае́нне**, -я, *н.*

**УТРО́ІЦЬ**, -о́ю, -о́іш, -о́іць; -о́ены; *зак., што.* Павялічыць утрая, патроіць. *У. сілы.* ‖ *незак.* **утро́йваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **утро́йванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **утрае́нне**, -я, *н.*

**УТРО́Х**, *прысл.* У колькасці трох чалавек (толькі пра мужчын ці толькі пра жанчын). *Пойдзем касіць у.*

**УТРУПЯНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* (разм.). Абмерці, абамлець ад спалоху. *У. ад страху.*

**УТРУ́СКА**, -і, *ДМ* -у́сцы, *ж.* Страта вагі сыпучага рэчыва пры перавозе, перасыпанні. *У. збожжа.*

**УТРЫВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак.* Цярпліва перанесці, утрымацца ад праяўлення чаго-н. *Такі боль, што не ў. Не ўтрываў, каб не запярэчыць.*

**УТРЫМА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Чалавек, які знаходзіцца на чым-н. утрыманні. ‖ *ж.* **утрыма́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **утрыма́нскі**, -ая, -ае.

**УТРЫМА́ННЕ**[1], -я, *н.* **1.** *гл.* утрымаць[1-2]. **2.** *мн.* -і, -яў. Утрыманая сума (афіц.). *Памеры ўтрымання з заработкаў. Утрыманні з ганарару.*

**УТРЫМА́ННЕ**[2], -я, *н.* Забеспячэнне таго, хто не працуе (хворага, састарэлага, непаўналетняга і пад.) сродкамі, неабходнымі для існавання. *Мець на ўтрыманні дзяцей.*

**УТРЫМА́НСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* утрыманец, утрыманства. **2.** Які выдзелены на ўтрыманне (афіц.). *У. фонд.*

**УТРЫМА́НСТВА**, -а, *н.* (афіц.). **1.** Знаходжанне на чым-н. утрыманні. *Дакументы аб утрыманстве.* **2.** Імкненне жыць на ўсім гатовым, разлічваць на чыю-н. дапамогу, а не на свае сілы. *Нельга разлічваць на ў.* ‖ *прым.* **утрыма́нскі**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Утрыманская псіхалогія.*

**УТРЫМА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак.* **1.** Захаваць пэўнае становішча, не ўпасці. *У. на нагах. У. за планку. У. на кані.* **2.** Застацца на месцы; не адступіць. *Ён доўга не ўтрымаўся на пасадзе дырэктара. У. на сваіх пазіцыях.* **3.** *ад чаго.* Стрымаць сябе ад якога-н. учынку, дзеяння, не даць праявіцца чаму-н. (разм.). *У. ад слёз. Утрымаўся ад спакусы.* ‖ *незак.* **утры́млівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УТРЫМА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак.* **1.** *каго-што* і *чаго.* Трымаючы, не даць упасці каму-, чаму-н. *Не ўтрымаў вясло ў руках.* **2.** *што.* Захаваць, зберагчы. *У. свае пазіцыі. У. у памяці.* **3.** *што.* Не адпусціць, не аддаць частку чаго-н. пры выплаце (афіц.). *У. дваццаць рублёў з зарплаты.* **4.** *каго (што).* Затрымаўшы, спыніць ці прымусіць застацца. *У такое надвор'е дзяцей у хаце не ўтрымаеш. У. каня.* **5.** *каго (што) ад чаго.* Не даць зрабіць што-н. *У. ад неабдуманага ўчынку.* **6.** *што* і *чаго.* Не даць праявіцца чаму-н. *Слёз было не ў.* ‖ *незак.* **утры́мліваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **утры́мліванне**, -я, *н.* (да 1, 2, 4 і 6 знач.) *і* **утрыма́нне**, -я, *н.* (да 3 знач.).

**УТРЫМА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; *зак., каго (што).* Забяспечыць сродкамі для існавання, пракарміць. ‖ *незак.* **утры́мліваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **утры́мліванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **утрыма́нне**, -я, *н.*

**УТРЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што* і *без дап.* (кніжн.). Падаць (падаваць) у перабольшаным выглядзе, сказіць (скажаць) залішнім падкрэсліваннем якіх-н. бакоў, рыс у чым-н. *Факт праўдзівы, але ўтрыраваны.* ‖ *наз.* **утры́раванне**, -я, *н. і* **утрыро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**УТРЭ́СЦІ**, -расу́, -расе́ш, -расе́; -расём, -расяце́, -расу́ць; -рэ́с, -рэ́сла; -расі́; -рэ́сены; *зак., што.* **1.** Трасучы, паменшыць аб'ём чаго-н. (сыпкага). *У. муку ў мяшку.* **2.** *перан.* Уладзіць, узгадніць што-н. (разм.). *У. пытанне.* ‖ *незак.* **утраса́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е *і* **утрэ́сваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **утраса́нне**, -я, *н. і* **утрэ́сванне**, -я, *н.*

**УТРЭ́СЦІСЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -расе́цца; -ро́сся, -рэ́слася; *зак.* **1.** Паменшыцца ў аб'ёме ад трасення (пра сыпкае). *Крупы ў торбе ўтрэсліся.* **2.** *перан.* Тое, што і *уладзіцца* ( у 1 знач.; разм.). *Не перажывай, усё ўтрасецца.* ‖ *незак.* **утраса́цца**, -а́ецца *і* **утрэ́свацца**, -аецца. ‖ *наз.* **утраса́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.) *і* **утрэ́сванне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**УТУЛІ́ЦЦА**, -улю́ся, -у́лішся, -у́ліцца; *зак., у што.* **1.** Уткнуўшыся, прыціснуцца да чаго-н. *У. тварам у падушку.* **2.** Захутацца ў што-н. *У. ў каўнер.* ‖ *незак.* **уту́львацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УТУЛІ́ЦЬ**, -улю́, -у́ліш, -у́ліць; -у́лены; *зак., што.* **1.** *у што.* Схаваць або (пра галаву) уцягнуць, увабраць унутр чаго-н. *У. твар у каўнер. У. галаву ў плечы.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыціснуць (вушы) да галавы (пра каня і пад.). *Конь утуліў вушы.* ‖ *незак.* **уту́льваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УТУ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Дэталь машыны або якога-н. прыстасавання — металічная трубка, якая прызначана для змяншэння трэння ў месцы апоры вала. *Калёсныя ўтулкі.* ‖ *прым.* **уту́лкавы**, -ая, -ае *і* **уту́лачны**, -ая, -ае.

**УТУ́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* утульны. **2.** Выгода, прыемная ўпарадкаванасць быту, жылля. *Стварыць у. у доме. Хатняя ў.*

**УТУ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вызначаецца ўтульнасцю (у 2 знач.), зручны і прыемны. *У. пакой. Утульна* (прысл.) *умасціцца ў крэсле.* **2.** Зацішны, укрыты ад каго-, чаго-н. *У. куточак для адпачынку.* ‖ *наз.* **уту́льнасць**, -і, *ж.*

**УТЫКА́ЦЦА**[1] *гл.* уткнуцца.

**УТЫКА́ЦЦА**[2] *гл.* уткацца.

**УТЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., што* (разм.). Уткнуць многа чаго-н. па ўсёй прасторы. *У. падушачку іголкамі.* ‖ *незак.* **утыка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УТЫКА́ЦЬ**[1] *гл.* уткнуць.

**УТЫКА́ЦЬ**[2] *гл.* уткаць.

**УТЫЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Знайсці (знаходзіць) прымяненне чаму-н., ужыць (ужываць) з карысцю. *У. адходы вытворчасці.* ‖ *наз.* **утылізаа́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **утылізацы́йны**, -ая, -ае.

**УТЫЛІТА́РНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** Прасякнуты утылітарызмам. *Мець утылітарнае прызначэнне. У. падыход да справы.* **2.** Прыкладны, вузкапрактычны. *Утылітарныя веды.* ‖ *наз.* **утыліта́рнасць**, -і, *ж.*

**УТЫЛІТАРЫ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Вузкі практыцызм, імкненне атрымаць з усяго непасрэдную матэрыяльную выгаду. ‖ *прым.* **утылітары́сцкі**, -ая, -ае.

**УТЫЛІТАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто кіруецца меркаваннямі ўтылітарызму. ‖ *ж.* **утылітары́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **утылітары́сцкі**, -ая, -ае.

**УТЫ́ЛЬ**, -ю, *м., зб.* Адходы, рэчы, якія ўжо не прыгодны для карыстання, але могуць быць выкарыстаны для перапрацоўкі, утылізацыі ў якасці сыравіны. *Здаць што-н. ва ў.* ‖ *прым.* **уты́льны**, -ая, -ае.

**УТЫЛЬСЫРАВІ́НА**, -ы, *ж.* Тое, што і *утыль.*

**УФАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая займаецца вывучэннем неапазнаных лятаючых

аб'ектаў (НЛА). ‖ *прым.* **уфалагі́чны**, -ая, -ае.

**УФО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па ўфалогіі.

**УХ**, *выкл.* **1.** Выражае розныя моцныя пачуцці. *Ух ты, прыгожа як!* **2.** Ужыв. пры абазначэнні рэзкага гуку ад удару, выбуху, выстралу. *Ух! Раздаўся глухі ўдар.*

**УХА́БА**, -ы, *мн.* -ы, ухаб, *ж.* Выбоіна на дарозе. *Калёсы падскакваюць на ўхабах.*

**УХА́БІСТЫ**, -ая, -ае. З вялікай колькасцю ўхаб. *Ухабістая дарога.* ‖ *наз.* **уха́бістасць**, -і, *ж.*

**УХАВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., што.* **1.** Хаваючы, зберагчы. *У. чужыя рэчы.* **2.** Утаіць ад каго-н. *У. сваю правіннасць.*

**УХАДЗІ́ЦЦА**, ухаджуся, ухо́дзішся, ухо́дзіцца; *зак., з кім-чым.* Управіцца, завяршыць якую-н. справу. *У. з работай.* ‖ *незак.* **ухо́джвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УХАЛАСТУ́Ю**, *прысл.* Не робячы карыснай работы (пра рух механізмаў), дарэмна. *Матор працуе ў.*

**УХАПІ́ЦЦА**, ухаплюся, ухо́пішся, ухо́піцца; *зак.* **1.** *за каго-што.* Схапіцца, узяцца. *У. за крысо. У. за поручань.* **2.** *перан., за што.* Узяцца старанна за якую-н. справу; выкарыстаць што-н. у сваіх інтарэсах. *У. за работу. У. за цікавую думку, за каштоўную прапанову.*

**УХАПІ́ЦЬ**, ухаплю, ухо́піш, ухо́піць; ухо́плены; *зак.* **1.** *каго-што.* Схапіць, узяць. *У. за хвост. Стараецца ў. сабе пабольш.* **2.** *перан., што.* Хутка, адразу зразумець, улавіць. *Мы адразу ж ухапілі яго думку.* **3.** *што* і *чаго.* З'есці чаго-н. крыху або наспех (разм.). *У. некалькі лыжак супу.* **4.** *што* і *чаго.* Паспець зрабіць што-н., управіцца з чым-н. (разм.). *Работы многа, за дзень не ўхопіш.*

**УХВАЛА́**, -ы́, *ж.* Адабрэнне, станоўчая ацэнка. *Ківаць галавой у знак ухвалы.*

**УХВАЛІ́ЦЬ**, -алю́, -а́ліш, -а́ліць; -а́лены; *зак., што.* Даць станоўчую ацэнку, прызнаць добрым, правільным, дапушчальным. *У. задуму. У. план развіцця гаспадаркі.* ‖ *незак.* **ухваля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **ухвале́нне**, -я, *н.*

**УХВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (разм.). Які заключае ў сабе, выражае ўхвалу. *Ухвальныя словы.*

**УХІ́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Нахіленая пакатая паверхня, схіл. *Цягнік ідзе пад у.* **2.** *перан.* Пэўны напрамак дзейнасці, інтарэсаў, спецыялізацыі. *Школа з мастацкім ухілам.* **3.** *перан.* Адхіленне, адыход ад асноўнай лініі ў поглядах, палітыцы. *Правы ў.*

**УХІ́ЛІСТЫ**, -ая, -ае. Пазбаўлены пэўнасці, яснасці, непрамы. *У. адказ.* ‖ *наз.* **ухі́лістасць**, -і, *ж.*

**УХІЛІ́ЦЦА**, ухілюся, ухі́лішся, ухі́ліцца; *зак.* **1.** *ад каго-чаго* і *без дап.* Адхіліцца, адсунуцца ўбок, каб пазбегнуць чаго-н. *У. ад удару.* **2.** *ад чаго.* Адысці ад прамога напрамку. *Дарога ўхілілася ўлева.* **3.** *перан., ад чаго.* Пазбягаючы чаго-н., устараніцца, адмовіцца ад чаго-н. *У. ад прамога адказу. У. ад абавязкаў.* ‖ *незак.* **ухіля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **ухіле́нне**, -я, *н.*

**УХІТРЫ́ЦЦА**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; -ры́мся, -рыце́ся, -ра́цца; *зак., з інф.* Сумець, умудрыцца зрабіць што-н. цяжкае, што патрабуе спрыту, знаходлівасці. *Ухітрыўся прабрацца незаўважаным.* ‖ *незак.* **ухітра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УХМЫЛІ́ЦЦА** *гл.* хмыліцца.

**УХМЫ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). Тое, што і *усмешка. Хітрая ў. Крывая ў.*

**УХМЫЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* (разм.). Тое, што і *усміхацца.* ‖ *зак.* **ухмыльну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся.

**УХО́ДАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак.* (разм.). **1.** *каго (што).* Пазбавіць жыцця, забіць. **2.** *каго (што).* Змардаваць, змучыць. *Уходала яго хвароба. Уходалі сіўку крутыя горкі* (прымаўка). **3.** *што.* Патраціць, расходаваць або з'есці. *У. многа грошай. Уходалі гаршчок кашы.*

**УХО́ДЖВАЦЦА** *гл.* ухадзіцца.

**УХУ́ТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *зак., каго-што.* Захутаць, абгарнуць з усіх бакоў. *У. дзіця ў коўдру.* ‖ *незак.* **уху́тваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *звар.* **уху́тацца**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **уху́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **уху́тванне**, -я, *н.*

**УЦАЛЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які ўцалеў, захаваўся. *У. дом.*

**УЦАЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* Застацца цэлым, непашкоджаным. *Дом уцалеў пасля бамбардзіровак.*

**УЦАНІ́ЦЬ**, уцаню́, уцэ́ніш, уцэ́ніць; уцэ́нены; *зак., што.* Знізіць цану на што-н. *У. тавар.* ‖ *незак.* **уцэ́ньваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уцэ́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* ‖ *прым.* **уцэ́начны**, -ая, -ае.

**УЦВЯЛІ́ЦЬ** *гл.* цвяліць.

**УЦЕ́РПЕЦЬ** *гл.* уцярпець.

**УЦЕ́РЦІ**, утру́, утрэ́ш, утрэ́; утро́м, утраце́, утру́ць; уцёр, уце́рла; утры́; уцёрты; *зак.* **1.** *што ў што.* Націраючы, прымусіць увабрацца. *У. мазь.* **2.** *каго-што.* Выцерці, абцерці. *У. слёзы. У. нос каму-н.* (таксама перан.: аказацца наперадзе, паказаць яўную перавагу ў чым-н.). ‖ *незак.* **уціра́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **уціра́нне**, -я, *н.*

**УЦЕ́РЦІСЯ**, утру́ся, утрэ́шся, утрэ́цца; утро́мся, утраце́ся, утру́цца; уцёрся, уце́рлася; утры́ся; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Увабрацца пры націранні. *Мазь добра ўцерлася.* **2.** Выцерці сабе твар. *У. ручніком.* **3.** *перан.* Праціснуўшыся, увайсці (разм.). *У. ў гушчу натоўпу.* **4.** *перан.* Пранікнуць куды-н. пры дапамозе хітрыкаў, нядобрых прыёмаў і пад. (разм.). *У. ў калектыў. У. ў давер'е да каго-н.* ‖ *незак.* **уціра́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **уціра́нне**, -я, *н.*

**УЦЕ́ХА**, -і, *ДМ* уце́се, *мн.* -і, уце́х, *ж.* **1.** Забава, задавальненне. *Дзіцячыя ўцехі.* **2.** Той, хто (або тое, што) прыносіць радасць, задавальненне. *Толькі ў працы і знаходзіш уцеху.*

**УЦЕ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* Страта ў выніку выцякання, рассыпання. *У. вады. У. зерня. У. інфармацыі* (перан.). *У. мазгоў* (перан.: эміграцыя вучоных, спецыялістаў, творчых работнікаў ці пераход іх у іншую сферу дзейнасці ў сваёй краіне).

**УЦЕ́ШНЫ**, -ая, -ае. Які прыносіць уцеху, радасны, прыемны. *Уцешныя моманты жыцця. Уцешная мелодыя.* ‖ *наз.* **уце́шнасць**, -і, *ж.*

**УЦЕ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак., каго (што).* Спагадай, спачуваннем палегчыць каму-н. гора, цяжкае становішча; парадаваць, абрадаваць чым-н. *У. дзіця. Яе пісьмо нас уцешыла.* ‖ *незак.* **уцяша́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *звар.* **уце́шыцца**, -шуся, -шышся, -шыцца; *незак.* **уцяша́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца. ‖ *наз.* **уцяшэ́нне**, -я, *н.*

**УЦЕ́КІ**, -аў. **1.** Хуткі беспарадкавы адыход, адступленне. *У. недабітых варожых часцей.* **2.** Тайнае самавольнае знікненне з месца абавязковага знаходжання дзе-н. *У. з палону.*

**УЦЁМНУЮ**, *прысл.* У картачнай гульні: не паглядзеўшы сваіх карт. *Гуляць у. Дзейнічаць у.* (перан.: наўдачу, наўгад).

**УЦЁС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Стромая скала. *Гранітны ў.*

**УЦЁСІСТЫ**, -ая, -ае. Багаты ўцёсамі, скалісты. *У. бераг.* ‖ *наз.* **уцёсістасць**, -і, *ж.*

**УЦІ́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Абрубак. *У. дрэва.*

**УЦІНА́ННЕ** *гл.* уцяць.

**УЦІНА́ЦЬ** *гл.* уцяць.

**УЦІРА́ННЕ** *гл.* уцерціся, уцерці.

**УУЦІРА́ЦЦА** *гл.* уцерціся.

**УЦІРА́ЦЬ** *гл.* уцерці.

**УЦІ́СК**, -у, *м.* **1.** *гл.* уціскаць[2]. **2.** Грубае абмежаванне ў правах; прыгнёт. *Сацыяльны ў. Каланіяльны ў.*

**УЦІСКА́ЦЬ**[1] *гл.* уціснуць.

**УЦІСКА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго (што).* Груба абмяжоўваць свабоду, правы каго-н., прыгнятаць. *У. слабых.* ‖ *наз.* **уці́ск**, -у, *м.*

**УЦІ́СНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* **1.** Паглыбіцца, улезці ў глыб, унутр чаго-н. *У. ў зямлю.* **2.** З цяжкасцю ўвайсці, пранікнуць у што-н. цеснае, запоўненае. *У. ў аўтобус.* **3.** Цесна абвязаць сябе чым-н. (разм.). *У. папружкай.* **4.** *перан.* Якім-н. чынам уладкавацца куды-н. (разм.). *Уціснуўся ў каледж.* ‖ *незак.* **уціска́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца (да 1—3 знач.).

**УЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* **1.** *каго-што ў што.* Сціскаючы, з намаганнем змясціць, упхнуць. *У. падушку ў чамадан.* **2.** *што.* Абвязваючы, зменшыць у аб'ёме. *У. сена на возе.* **3.** *што ў што.* Увабраць унутр. *У. галаву ў плечы.* ‖ *незак.* **уціска́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЦІХАМІ́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *зак.* **1.** Супакоіцца, суняцца; ас-

лабець (пра сілу праяўлення чаго-н.). *Крыкун уціхамірыўся. Мора ўціхамірылася.* **2.** Стаць паслухмяным, пакорным, утаймавацца. *Раз'юшаны звер уціхамірыўся.* ‖ *незак.* **уціхамі́рвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УЦІХАМІ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак.* **1.** *каго-што.* Супакоіць, зменшыць сілу праяўлення чаго-н. *У. дзяцей. У. злосць.* **2.** *каго.* Сілай супакоіць; задушыць (бунт, паўстанне і пад.). *У. бунтаўшчыкоў.* **3.** *каго-што.* Падпарадкаваць сваёй волі; утаймаваць. *У. стыхію. У. раз'юшанага быка.* ‖ *незак.* **уціхамі́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уціхамі́рванне**, -я, *н.*

**УЦІ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; уці́х, -хла; -ні; *зак.* Тое, што і *заціхнуць. Шум уціх. Уціхла навальніца. Боль уціх. Дзіця плакала доўга, а потым змаглося і ўціхла.* ‖ *незак.* **уціха́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЦІ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; -шаны; *зак.* **1.** *каго (што).* Уціхамірыць, утаймаваць. *У. сабаку.* **2.** *што.* Палегчыць або суняць (хваробу, боль); суцішыць, супакоіць (пачуцці, перажыванні і пад.). *У. боль. У. хваляванні.* ‖ *незак.* **уціша́ць**, -аю, -аеш, -ае.

**УЦЭ́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *зак., у каго-што* і *каму ў што.* Страляючы, кідаючы або ўдараючы, папасці ў каго-, што-н. *Камень уцэліў яму ў патыліцу. У. каменем у акно.*

**УЦЭ́НАЧНЫ** *гл.* уцаніць.

**УЦЭ́НКА** *гл.* уцаніць.

**УЦЭ́НЬВАЦЬ** *гл.* уцаніць.

**УЦЯГНУ́ЦЦА**, -ягну́ся, -я́гнешся, -я́гнецца; -ягні́ся; *зак., у што.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прасунуцца ў вузкую адтуліну. *Нітка ўцягнулася ў іголку.* **2.** Прыняць удзел у чым-н., уключыцца ў што-н. *У. ў размову.* **3.** *перан.* Асвоіцца з чым-н., прывыкнуць, прызвычаіцца, прыахвоціцца да чаго-н. *У. ў работу. У. ў гарэлку.* ‖ *незак.* **уця́гвацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УЦЯГНУ́ЦЬ**, -ягну́, -я́гнеш, -я́гне; -ягні́; -я́гнуты; *зак.* **1.** *каго-што.* Цягнучы, завалачы каго-, што-н. у што-н. або сілаю ўвесці ўнутр чаго-н. *У. сані ў вазоўню. У. каго-н. у памяшканне.* **2.** *што ў што.* Усунуць у якую-н. адтуліну. *У. нітку ў іголку.* **3.** *што.* Удыхнуць. *У. паветра.* **4.** *асаб.* і *безас., што.* Утуліць, увабраць унутр (галаву, шчокі, жывот і пад.); запасці. *У. галаву ў плечы. Жывот уцягнула.* **5.** *перан., каго (што) у што.* Схіліць уступіць у што-н., прыняць удзел у чым-н. *У. у драмгурток. У. у спрэчку.* ‖ *незак.* **уця́гваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *прым.* **уцяжны́**, -а́я, -о́е (да 1 і 3 знач.). *Уцяжная труба. У. рукаў помпы.*

**УЦЯЖА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; -раны; *зак., што* (кніжн.). Зрабіць цяжэйшым. *У. канструкцыю.* ‖ *незак.* **уцяжа́рваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **уцяжа́рванне**, -я, *н.*

**УЦЯКА́ЦЬ**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́е; *незак., у што.* Тое, што і *упадаць* (у 2 знач.). *Ручай уцякае ў рэчку.* ‖ *зак.* **уцячы́**, -ячэ́, -якý́ць; уцёк, уцякла́, -ло́.

**УЦЯКА́ЦЬ**[2] *гл.* уцячы[2].

**УЦЯКА́Ч**, уцекача́, *мн.* уцекачы́, уцекачо́ў, *м.* **1.** Той, хто ўцёк[2] (у 2 знач.). **2.** Тое, што і *бежанец.* ‖ *ж.* **уцяка́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**УЦЯ́МІЦЬ**, -млю, -міш, -міць; *зак., што* і *з дадан.* (разм.). Зразумець сэнс, змест чаго-н., поўнасцю ўсвядоміць што-н. *Я не адразу ўцяміў, пра што ідзе гаворка. У. сэнс выказвання.*

**УЦЯПЛІ́ЦЬ**, уцяплю́, уцэ́пліш, уцэ́пліць; уцэ́плены; *зак., што.* Зрабіць цяплейшым, засцерагчы ад уздзеяння холаду. *У. ферму.* ‖ *незак.* **уцяпля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **уцяпле́нне**, -я, *н.*; *прым.* **уцяпля́льны**, -ая, -ае. *У. чахол* (прызначаны для ўцяплення).

**УЦЯПЛЯ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Уцяпляльны матэрыял.

**УЦЯРПЕ́ЦЬ**, уцярплю́, уцярпі́ш, уцярпі́ць; уцярпі́м, уцерпіце́, уцярпя́ць; уцярпі́ і **УЦЕ́РПЕЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -пі; *зак.* Цярпліва перанесці, утрымацца ад якога-н. дзеяння. *Не ўцярпеў (уцерпеў), каб не выказацца.*

**УЦЯ́ЦЬ**, утну́, утне́ш, утне́; утнём, утняце́, утну́ць; уця́ў, уцяла́, -ло́; утні́; уця́ты; *зак., што* (разм.). **1.** Адсякаючы, адразаючы, укараціць. *У. канец вяроўкі.* **2.** *у што.* Уцягнуць, увабраць унутр (галаву, шыю). *У. галаву ў плечы.* ‖ *незак.* **уціна́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **уціна́нне**, -я, *н.*

**УЦЯЧЫ́**[1] *гл.* уцякаць[1].

**УЦЯЧЫ́**[2], уцякý́, уцячэ́ш, уцячэ́; уцячо́м, уцечаце́, уцякý́ць; уцёк, уцякла́, -ло́; уцячы́; *зак.* **1.** Паспешліва пайсці адкуль-н., бягом накіравацца куды-н. *У. з дому.* **2.** Пайсці тайком адкуль-н., выратавацца ўцёкамі. *Мядзведзь зрабіў падкоп і ўцёк у лес. У. з палону.* ‖ *незак.* **уцяка́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е.

**УЦЯША́ЦЦА** *гл.* уцешыцца.

**УЦЯША́ЦЬ** *гл.* уцешыць.

**УЦЯШЭ́ННЕ** *гл.* уцешыць.

**УЧА́ДЗЕЛЫ**, -ая, -ае. Атручаны чадам (у 1 знач.). *Учадзелае дзіця.*

**УЧА́ДЗЕЦЬ** *гл.* чадзець.

**УЧАПІ́ЦЦА**, учаплю́ся, учэ́пішся, учэ́піцца; *зак.* **1.** *за каго-што, у каго-што.* Моцна ўхапіцца за каго-, што-н. або ўплесціся за што-н., у што-н. *У. за борт машыны. У. ў валасы.* **2.** *за што.* Зачапіцца за што-н. *Кручок вуды ўчапіўся за водарасці.* **3.** *чым за што.* Закрануць што-н. у час руху. *У. воссю калёс за шула варот.* **4.** *перан., за што.* Тое, што і *ухапіцца* (у 2 знач.). *У. за думку.* **5.** *за кім-чым.* Далучыцца самавольна, без папярэдняй згоды да тых, хто ідзе куды-н. *За намі ўчапіўся сабака.* ‖ *незак.* **учэ́плівацца**, -аюся, -аешся, -аецца (да 1 і 4 знач.).

**УЧАПІ́ЦЬ**, учаплю́, учэ́піш, учэ́піць; учэ́плены; *зак.* **1.** *што.* Зачапіць за што-н. *У. вудачку.* **2.** *што на каго-што.* Павесіць. *У. каралі на шыю.* **3.** *у што.* У час руху зачапіць чым-н. ці за што-н. (разм.) *У. колам у дрэва.*

**УЧАРА́ШНІ**, -яя, -яе. **1.** Які быў, адбыўся ўчора. *Шукаць учарашняга дня* (траціць час на пошукі таго, чаго ўжо няма; жарт.). **2.** Які быў нядаўна кім-, чым-н. *Учарашнія студэнты.*

**УЧАРНЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які зблажэў, змарнеў; счарнелы. *У. чалавек. У. твар.* **2.** Пачарнелы (разм.). *Учарнелае лісце.*

**УЧАРНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *зак.* **1.** Зблажэць, змарнець. *У. ад хваробы. Твар учарнеў.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пачарнець (пад уздзеяннем вільгаці, сонца, паветра і пад.; разм.). *Драніца на даху ўчарнела.*

**УЧАРСЦВЕ́ЛЫ**, -ая, -ае. Які стаў чэрствым, зачарсцвелы. *У. хлеб.*

**УЧАРСЦВЕ́ЦЬ** *гл.* чарсцвець.

**УЧА́СТАК**, -тка, *мн.* -ткі, -ткаў, *м.* **1.** Асобная частка якой-н. паверхні. *У. магістралі. Пашкоджаны ў. скуры.* **2.** Частка зямельнай плошчы, занятая чым-н. або прызначаная для чаго-н. *Зямельны ў. Працаваць на прысядзібным участку. Доследны ў.* **3.** Адміністрацыйна-тэрытарыяльнае падраздзяленне чаго-н. *Выбарчы ў. Урачэбны ў.* **4.** Частка фронту, зона дзеяння якой-н. воінскай часці, вайсковага злучэння. *На ўчастку стралковага палка.* **5.** Галіна, сфера якой-н. грамадскай дзейнасці. *Адказны ў. работы.* **6.** У царскай Расіі: падраздзяленне, аддзяленне гарадской паліцыі. *Адвесці ва ў.* ‖ *прым.* **участко́вы**, -ая, -ае (да 3 і 6 знач.). *У. ўрач. Участковая выбарчая кампанія. У. ўпаўнаважаны. У. інспектар* (афіцэр міліцыі, адказны за парадак на даручаным яму ўчастку; у 3 знач.).

**УЧАСТКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* участак. **2.** *у знач. наз.* **участко́вы**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Тое, што і ўчастковы ўпаўнаважаны, участковы інспектар (разм.).

**УЧАСЦІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -і́цца; *зак.* Стаць больш частым (у 3 і 4 знач.). *Учасціліся раннія замаразкі. Рытм сэрца ўчасціўся.* ‖ *незак.* **учашча́цца**, -а́ецца. ‖ *наз.* **учашчэ́нне**, -я, *н.*

**УЧАСЦІ́ЦЬ**, -ашчý́, -асці́ш, -асці́ць; -асці́м, -асціце́, -асця́ць; -а́шчаны; *зак., што.* Зрабіць больш частым. *У. абарачальнасць аўтобусаў. У. рытм руху.* ‖ *незак.* **учашча́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **учашчэ́нне**, -я, *н.*

**УЧО́РА**, *прысл.* **1.** У дзень перад сённяшнім. **2.** *у знач. наз., нескл., н.* Учарашні дзень. *У. не дагоніш, ад заўтра не ўцячэш* (прыказка).

**УЧО́Т**, -у, *М* учо́це, *м.* Рэгістрацыя кадраў, устанаўленне іх наяўнасці. *Стаць на прафсаюзны ў. Зняцца з учоту.* ‖ *прым.* **учо́тны**, -ая, -ае. *У. лісток.*

**УЧО́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая вядзе ўлік чаго-н. *У. палявой брыгады.* ‖ *ж.* **учо́тчыца**, -ы, -чыц.

**УЧУБКІ́**, *прысл.* У выразе: **узяцца ўчубкі** (разм.) — 1) учапіцца адзін аднаму ў ва-

ласы, пер'е; 2) пачаць бурна спрачацца з кім-н. *З-за дробязі, а ў. ўзяліся.*

**УЧУ́ЦЬ**, -у́ю, -у́еш, -у́е; -у́й; -у́ты; *зак., што* і з дадан. (разм.). **1.** Успрыняць слыхам, пачуць. *У. далёкую гамонку.* **2.** Улавіць, зразумець тое, што гавораць. *Прабач, я не ўсё ўчуў, што ты сказаў.* **3.** Улавіць нюхам, чуццём. *Звер учуў небяспеку. У. добразычлівасць у голасе.*

**УЧЫНАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Дзеянне, учыненае кім-н., тое, што здзейснена кім-н. *Смелы ў.*

**УЧЫНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́ніцца; *зак.* (разм.). Здарыцца, адбыцца. *Што там такое ўчынілася, што быў крык?* ‖ *незак.* **учыня́цца**, -я́ецца.

**УЧЫНІ́ЦЬ** *гл.* чыніць.

**УЧЫНЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., што* (разм.). Тое, што і *чыніць* (у 1 знач.).

**УЧЫТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *зак., у што.* Чытаючы, унікнуць. *У. ў незразумелы тэкст.* ‖ *незак.* **учы́твацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УЧЭ́ПІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Здольны чапляцца, хапацца і моцна трымацца за каго-, што-н. *Учэпістыя кіпцюры. У. погляд* (перан.). **2.** *перан.* Які добра запамінае што-н. (пра памяць, розум). *Учэпістая памяць.* **3.** *перан.* Вельмі ўпарты, які настойліва дабіваецца сваёй мэты. *У. чалавек. Учэпіста* (прысл.) *трымацца за свае погляды.* ‖ *наз.* **учэ́пістасць**, -і, *ж.*

**УЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *гл.* учапіцца.

**УШАНАВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* ушанаваць. **2.** Урачыстасці ў гонар юбіляра і пад. *У. ветэранаў працы.*

**УШАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак.* **1.** *каго-што.* Выказаць пашану, павагу каму-, чаму-н. *У. чыю-н. памяць. У. сваёй прысутнасцю. У. памяць мінутным маўчаннем.* **2.** *каго (што).* Урачыста павіншаваць у сувязі з чым-н. *У. юбіляра.* ‖ *незак.* **ушано́ўваць**, -аю, -аеш, -ае; *наз.* **ушано́ўванне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **ушанава́нне**, -я, *н. Ваенныя ўшанаванні.*

**УШАСЦЁХ**, *прысл.* У колькасці шасці чалавек (толькі пра мужчын або толькі пра жанчын). *Дояць кароў на ферме ў.*

**УШАСЦЯРЫ́Х**, *прысл.* Колькасцю ў шэсць асоб (рознага полу) або істот (ніякага роду). *Ехаць у.*

**УШКУ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Старадаўняя пласкадонная лодка з парусамі і вёсламі.

**УШМО́РГНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак., што ў што.* Шморгаючы, уцягнуць у сярэдзіну чаго-н. *У. шнуркі ў чаравікі.* ‖ *незак.* **ушмо́ргваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УШРУБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *зак., што ў што.* Вярчэннем увесці ў сярэдзіну чаго-н. *У. шрубу ў дзвярную ручку.* ‖ *незак.* **ушрубо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **ушрубо́ўванне**, -я, *н.*

**УШТУРХНУ́ЦЬ**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -няцё, -ну́ць; -ні́; -ну́ты; *зак., каго-што ў што.* Штурхнуўшы, прымусіць увайсці, штуршком упіхнуць куды-н. *У. падсвінка ў катух.* ‖ *незак.* **ушту́рхваць**, -аю, -аеш, -ае і **уштурхо́ўваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УШЧАМІ́ЦЦА**, -чамлю́ся, -чэ́мішся, -чэ́міцца; *зак., у што.* Аказацца заціснутым, зашчэмленым з двух бакоў. *Парася ўшчамілася ў плот. У. ў пастку* (таксама перан.: апынуцца ў цяжкім становішчы). ‖ *незак.* **ушчамля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца і **ушчэ́млівацца**, -аюся, -аешся, -аецца.

**УШЧАМІ́ЦЬ**, -чамлю́, -чэ́міш, -чэ́міць; -чэ́млены; *зак., каго-што.* **1.** Сціснуўшы, зашчаміць. *У. палец у дзверы.* **2.** *перан.* Абмежаваць у чым-н. *У. каго-н. у правах. У. самалюбства.* **3.** *перан.* Паставіць у няёмкае становішча. ‖ *незак.* **ушчамля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е і **ушчэ́мліваць**, -аю, -аеш, -ае.

**УШЧУВА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Спагнанне, дакор, папрок. *Тут ужо папрокамі і ўшчуваннем не дапаможаш.*

**УШЧУВА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго.* Дакараць, папракаць за што-н. *У. за правіннасць.* ‖ *зак.* **ушчу́ць**, -у́ю, -у́еш, -у́е і **ушчу́нуць**, -ну, -неш, -не; ушчу́нь.

**УШЧУ́НАК**, -нку, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* **1.** Пакаранне, спагнанне. *Сродкі ўшчунку.* **2.** Дакор, папрокі. *Асыпаць каго-н. ушчункамі і папрокамі.*

**УШЧЫКНУ́ЦЬ** *гл.* шчыкаць.

**УШЧЫЛЬНІ́ЦЦА**, -ыльню́ся, -ы́льнішся, -ы́льніцца; *зак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Стаць больш шчыльным (у 1 знач.). **2.** Пачаць жыць цясней, пасяліўшы да сябе каго-н. **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Стаць цалкам запоўненым (пра рабочы час). ‖ *незак.* **ушчыльня́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **ушчыльне́нне**, -я, *н.*

**УШЧЫЛЬНІ́ЦЬ**, -ыльню́, -ы́льніш, -ы́льніць; -ы́льнены; *зак.* **1.** *што.* Зрабіць больш шчыльным (у 1 знач.), сціскаючы. *У. глебу. У. сіласную масу.* **2.** *каго-што.* Засяліць больш, шчыльней ці ўсяліць каго-н. да каго-н. дадаткова. *У. кватэру. У. жыльцоў.* **3.** *перан., што.* Запоўніць цалкам, зрабіць больш насычаным. *У. рабочы дзень. Ушчыльнены графік работ. У. тэрміны жніва* (скараціць, сціснуць). ‖ *незак.* **ушчыльня́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е. ‖ *наз.* **ушчыльне́нне**, -я, *н.*

**УШЧЫЛЬНУ́Ю**, *прысл.* Зусім шчыльна, блізка. *Сесці на лаўцы ў. Хмызняк падступае да дарогі ў.*

**УШЧЫЛЬНЯ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Прыстасаванне для ўшчыльнення (у 1 знач.) чаго-н.

**УШЧЫПНУ́ЦЬ** *гл.* шчыпаць.

**УШЧЭ́МЛІВАЦЦА** *гл.* ушчаміцца.

**УШЧЭ́МЛІВАЦЬ** *гл.* ушчаміць.

**УШЫРКІ́** і **УШЫРЫНЮ́**, *прысл.* На шырокую адлегласць, у шырыню. *Раздацца ў.*

**УШЫ́ЎНЫ**, -а́я, -о́е. Такі, які ўшываецца, ушыты. *Ушыўныя кішэні.*

**УШЫ́ЦЦА**[1], 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́ецца; *зак.* Звузіцца, укараціцца пры шыцці. ‖ *незак.* **ушыва́цца**, -а́ецца.

**УШЫ́ЦЦА**[2], -ы́юся, -ы́ешся, -ы́ецца; *зак., у што* (разм.). **1.** З цяжкасцю пранікнуць куды-н.; залезці, схавацца ў чым-н. *У. ў натоўп. У. ў салому.* **2.** *перан.* Сканцэнтраваць увагу на чым-н. *У. ў паперы.* ‖ *незак.* **ушыва́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**УШЫ́ЦЬ**, -ы́ю, -ы́еш, -ы́е; -ы́ты; *зак., што.* **1.** *у што.* Прышыць, прымацаваць або зашыць унутр. *У. гузік.* **2.** Паменшыць памеры чаго-н., забраўшы лішняе ў швы. *У. сукенку ў таліі.* ‖ *незак.* **ушыва́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е. ‖ *наз.* **ушы́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* і **ушыва́нне**, -я, *н.*

**УЮ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Упакаваная паклажа, якая перавозіцца на спіне жывёлы, а таксама сумка для такой паклажы.

**УЮ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Невялікая вельмі рухавая рыба з падоўжаным чэрвепадобным целам і дробнай луской. **2.** *перан.* Пра рухавага, жвавага чалавека, звярка або пра праныру, лаўкача. *Віцца ўюном. Гэты ў. заўсёды выкруціцца.* ‖ *прым.* **уюно́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**УЮРО́К**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* Невялікая паўночная таежная птушка. ‖ *прым.* **уюрко́вы**, -ая, -ае. *Сямейства ўюрковых* (наз.).

**УЮ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які служыць, прызначаны для перавозкі ўюкоў. *Уючная жывёла.*

**УЮ́ЧЫЦЬ**, -чу, -чыш, -чыць; *незак., каго-што.* Класці ўюком або нагружаць уюком. *У. паклажу на вярблюда.* ‖ *зак.* **наўю́чыць**, -чу, -чыш, -чыць; -чаны.

**УЯ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, уяў, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што і *уяўленне. Перад ім ва ўяве прамільгнулі знаёмыя вобразы. Не мець уявы пра што-н.* **2.** Напамінак, вобраз, прымета. *Уявы вясны.*

**УЯВІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., уя́віцца; *зак., каму.* Узнікнуць ва ўяўленні або (безас.) здацца, паказацца. *Яму ўявілася будучае. Мне ўявілася, што наперадзе — абрыў.* ‖ *незак.* **уяўля́цца**, -я́ецца.

**УЯВІ́ЦЬ**, уяўлю́, уя́віш, уя́віць; уя́ўлены; *зак., каго-чаго.* **1.** У думках скласці вобраз каго-, чаго-н. *У. рысы дарагога чалавека.* **2.** Палічыць, дапусціць. *Я не мог у., што ў нас магло адбыцца такое.* **3.** *заг., у знач. пабочн. сл.* **уяві, уяві сабе.** Ужыв. для падкрэслівання чаго-н. дзіўнага, цікавага. ‖ *незак.* **уяўля́ць**, -я́ю, -я́еш, -я́е (у 3 знач. — толькі ў форме 2 ас. адз. л.).

**УЯДА́ЦЦА**[1] *гл.* уесціся[1].

**УЯДА́ЦЦА**[2] *гл.* уесціся[2].

**УЯДА́ЦЬ** *гл.* уесці.

**УЯЗДЖА́ЦЬ** *гл.* уехаць.

**УЯЗНЫ́** *гл.* уехаць.

**УЯЎЛЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Стварэнне ў думках вобраза каго-, чаго-н. ці ўзнаўленне ў свядомасці атрыманых раней успрыманняў, а таксама канкрэтны вобраз прадмета ці з'явы, які раней уздзейнічаў на органы пачуццяў, а ў гэты момант непасрэдна не ўспрымаецца свядомасцю. *Ва ўяўленні паўсталі эпізоды вайны. Зрокавыя ўяўленні.* **2.** Псіхічны працэс, які заключаецца ў стварэнні новых вобразаў на аснове ўжо наяўных шляхам іх пераўтварэння (спец.); творчая фанта-

зія. *У. мастака.* **3.** Разуменне, веданне чаго-н. *Не мець ніякага ўяўлення пра што-н. Скласці сабе ў. пра што-н.*

**УЯЎНЫ**, -ая, -ае. Які існуе ва ўяўленні або магчымы тэарэтычна. *Уяўная небяспека. Уяўная лінія.* ○ **Уяўны лік** — у матэматыцы: квадратны корань з адмоўнага ліку. ‖ *наз.* **уяўнасць**, -і, *ж.*



**ФА**, *нескл., н.* Чацвёрты гук музычнай гамы, а таксама нота, якая абазначае гэты гук.

**ФАБРЫКА**, -і, *ДМ* -рыцы, *мн.* -і, -рык, *ж.* Прамысловае прадпрыемства з машынным спосабам вытворчасці. *Кандытарская ф. Ф. дзіцячых цацак.* ‖ *прым.* **фабрычны**, -ая, -ае. *Ф. гудок.*

**ФАБРЫКАВАЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны; *незак., што.* **1.** Выраблядь што-н. фабрычным спосабам (уст.). **2.** *перан.* Рабіць ці распаўсюджваць што-н. ілжывае, фальшывае (неадабр.). *Ф. дакументы. Ф. злосныя плёткі.* ‖ *зак.* **сфабрыкаваць**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны (да 2 знач.). ‖ *наз.* **фабрыкацыя**, -і, *ж. і* **фабрыкаванне**, -я, *н.*

**ФАБРЫКАНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Уладальнік фабрыкі. **2.** *перан.* Той, хто фабрыкуе (у 2 знач.) што-н. (неадабр.). *Фабрыканты няпраўды.* ‖ *ж.* **фабрыкантка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (разм.). ‖ *прым.* **фабрыканцкі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ФАБРЫКАТ**, -у, *М* -каце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гатовы прадукт прамысловай вытворчасці.

**ФАБРЫЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фабрыка. **2.** Выраблены на фабрыцы, не саматужна. *Фабрычная шафа.* **3.** Такі, дзе ёсць фабрыка; прамысловы. *Ф. гарадок.*

**ФАБУЛА**, -ы, *мн.* -ы, -бул, *ж.* (спец.). Сюжэтная аснова літаратурнага твора, дзе храналагічна паслядоўна адлюстроўваюцца жыццёвыя падзеі, учынкі герояў і іх лёс. ‖ *прым.* **фабульны**, -ая, -ае.

**ФАВАРЫТ**, -а, *М* -рыце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Той, каму спрыяе высокапастаўленая асоба, улюбёнец уплывовай асобы. **2.** У спорце: конь, коннік ці каманда, якія маюць найбольшыя шансы на першынство. ‖ *ж.* **фаварытка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **фаварыцкі**, -ая, -ае.

**ФАГАТЫСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на фагоце.

**ФАГОТ**, -а, *М* -гоце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Драўляны духавы язычковы музычны інструмент нізкага тэмбру ў выглядзе доўгай трубы з сістэмай клапанаў. ‖ *прым.* **фаготны**, -ая, -ае *і* **фаготавы**, -ая, -ае.

**ФАЕ**, *нескл., н.* Памяшканне ў тэатры, кіно, клубе і пад. для адпачынку гледачоў у час антрактаў ці перад пачаткам спектакля.

**ФАЗА**, -ы, *мн.* -ы, фаз, *ж.* **1.** Момант, этап, асобная стадыя ў развіцці і змяненні чаго-н. *Першая ф. месяца. Вадкая ф. Уступіць у новую фазу развіцця.* **2.** Асобная група абмотак генератара (спец.). ‖ *прым.* **фазавы**, -ая, -ае.

**ФАЗАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая птушка сямейства фазанавых з яркім апярэннем у самцоў. ‖ *прым.* **фазанавы**, -ая, -ае.

**ФАЗАТРОН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Паскаральнік цяжкіх зараджаных часціц.

**ФАЗІС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Тое, што і *фаза* (у 1 знач.). ‖ *прым.* **фазісны**, -ая, -ае.

**ФАЙЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У інфарматыцы: блок інфармацыі або рэсурс для інфармацыі, даступны для камп'ютарных праграм. *Захоўванне файла. Тэкставыя файлы.* **2.** Канцылярскі празрысты пакет для захоўвання паперы і дакументаў. ‖ *прым.* **файлавы**, -ая, -ае. *Файлавыя сістэмы.*

**ФАКАЛЬНЫ** *гл.* фокус[1].

**ФАКЕЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Асвятляльная прылада звычайна ў выглядзе палкі з наматаным на канцы прасмоленым пакуллем. *Запаліць ф.* **2.** Палаючы струмень газу або вадкасці ў выглядзе конуса, а таксама наогул конусападобнае полымя (спец.). ‖ *прым.* **факельны**, -ая, -ае.

**ФАКЕЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто нясе факел у час шэсця, працэсіі. **2.** Той, хто падпальвае што-н. пры дапамозе факела. *Факельшчыкі падпальвалі хаты.* ‖ *ж.* **факельшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ФАКІР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Мусульманскі манах, які даў абяцанне жабраваць; дэрвіш. **2.** Вандроўны фокуснік ці дрэсіроўшчык. ‖ *прым.* **факірскі**, -ая, -ае.

**ФАКС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *тэлефакс.* **2.** Апарат для перадачы графічнай інфармацыі ў арыгінальным выглядзе. **3.** Паведамленне, перададзенае з дапамогай такога апарата. *Атрымаць ф.*

**ФАКСІМІЛЕ**. **1.** *нескл., н.* Дакладнае ўзнаўленне рукапісу, дакумента, подпісу (спец.). **2.** *прым., нязм.* Дакладна ўзноўлены. *Подпіс ф.* **3.** *прысл.* Дакладна ўзноўлены. *Рукапіс выдадзены ф.* ‖ *прым.* **факсімільны**, -ая, -ае.

**ФАКСТРОТ**, -а, *М* -роце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Хуткі рытмічны танец чатырохдольнага памеру, а таксама музыка да гэтага танца. ‖ *прым.* **факстротны**, -ая, -ае.

**ФАКТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Нявыдуманы, сапраўдны выпадак, падзея, тое, што адбылося на самай справе. *Сапраўдны ф. Паведаміць факты. Паставіць перад фактам каго-н.* (перан.: становішча, калі ўжо нічога нельга змяніць). **2.** *часц. сцвярдж.* Ужыв. са знач. так, сапраўды, бясспрэчна (разм.). *Няўжо ўсе сабраліся? — Ф.!*

**ФАКТАГРАФІЯ**, -і, *ж.* Апісанне фактаў без іх аналізу, абагульнення. ‖ *прым.* **фактаграфічны**, -ая, -ае.

**ФАКТАР**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Істотныя абставіны, прычына, рухаючая сіла якога-н. працэсу, што вызначае яго характар або асобныя рысы. *Ф. часу. Трэба ўлічваць прыродныя фактары.* **2.** -а. Пасрэднік, камісіянер (уст.). **3.** -а. Кіраўнік тэхнічнай часткі друкарні, распарадчык яе работамі (уст.).

**ФАКТОРЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* **1.** Гандлёвая кантора і пасяленне еўрапейскіх купцоў у каланіяльных краінах. **2.** Гандлёвы і нарыхтоўчы пункт у аддаленых прамысловых раёнах. *Пушная ф. на Поўначы.*

**ФАКТУРА**[1], -ы, *ж.* (спец.). **1.** Своеасаблівая якасць апрацоўкі матэрыялу, яго паверхні. *Ф. тканіны.* **2.** Своеасаблівасць мастацкай тэхнікі ў творах мастацтва. *Вобразная ф. паэмы.* ‖ *прым.* **фактурны**, -ая, -ае.

**ФАКТУРА**[2], -ы, *ж.* (спец.). Рахунак з вопісам адпраўленага тавару. ‖ *прым.* **фактурны**, -ая, -ае.

**ФАКТЫЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адлюстроўвае сапраўдны стан чаго-н., адпавядае фактам; заснаваны на дакументальнай дакладнасці або які адпавядае ёй. *Фактычныя звесткі. Фактычныя доказы. Фактычна* (прысл.) *ён з'яўляецца кіраўніком гэтай тэмы. Фактычныя выклады.* **2.** Які існуе ў наяўнасці, але не ўзаконены юрыдычна. *Ф. шлюб.* ‖ *наз.* **фактычнасць**, -і, *ж.*

**ФАКУЛЬТАТЫЎ**, -тыву, *мн.* -тывы, -тываў, *м.* Неабавязковы для наведвання звышпраграмны курс, прадмет. *Ф. па стылістыцы.* ‖ *прым.* **факультатыўны**, -ая, -ае.

**ФАКУЛЬТАТЫЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* факультатыў. **2.** Неабавязковы, які даецца на выбар. *Факультатыўныя заняткі па псіхалогіі.* ‖ *наз.* **факультатыўнасць**, -і, *ж.*

**ФАКУЛЬТЭТ**, -а, *М* -тэце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аддзяленне вышэйшай навучальнай установы, дзе вывучаецца пэўны цыкл сумежных навуковых дысцыплін. *Біялагічны ф.* ‖ *прым.* **факультэцкі**, -ая, -ае.

**ФАКУСІРАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., што.* **1.** Збіраць прамяні ў фокус[1] (у 1 знач.; спец.). *Ф. прамяні.* **2.** Устанаўліваць фокус[1] (у 2 знач.; спец.). *Ф. адлюстраванне.* **3.** *перан.* Сканцэнтроўваць, засяроджваць (думку, увагу і пад.). *Ф. погляд на чым-н.* ‖ *зак.* **сфакусіраваць**,

-рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны. ‖ *наз.* **факусіраванне**, -я, *н.*

**ФАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Канат, вяроўка, трос на караблі для падымання сцяга, ветразяў і пад.

**ФАЛА́НГА**[1], -і, *ДМ* -нзе, *мн.* -і, -ла́нг *і* -аў, *ж.* **1.** Шчыльна самкнуты баявы строй пяхоты ў старажытных грэкаў. **2.** Вялікая абшчына, камуна (у сацыяльным утапічным вучэнні Ш. Фур'е). **3.** У Іспаніі: назва фашысцкай партыі. ‖ *прым.* **фалангі́сцкі**, -ая, -ае.

**ФАЛА́НГА**[2], -і, *ДМ* -нзе, *мн.* -і, -ла́нг *і* -аў, *ж.* (спец.). Кароткая трубчатая костачка пальца.

**ФАЛА́НГА**[3], -і, *ДМ* -нзе, *мн.* -і, -ла́нг *і* -аў, *ж.* Ядавітая драпежная павукападобная жывёліна.

**ФА́ЛДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, фа́лд *і* -аў, *ж.* **1.** Трубкападобная складка на адзенні. **2.** Задняе крысо пінжака, мундзіра і пад.

**ФАЛЕРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Калекцыянер значкоў і розных нагрудных знакаў адрознення. ‖ *ж.* **фалеры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **фалеры́сцкі**, -ая, -ае.

**ФАЛЕРЫ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае гісторыю ордэнаў, медалёў і іншых знакаў адрознення. **2.** Калекцыянаванне значкоў і розных нагрудных знакаў. ‖ *прым.* **фалерысты́чны**, -ая, -ае.

**ФАЛІЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Тоўстая кніга вялікага фармату, звычайна старадаўняя. ‖ *прым.* **фалія́нтавы**, -ая, -ае *і* **фалія́нтны**, -ая, -ае.

**ФАЛЬБО́НА**, -ы, *мн.* -ы, -бо́н, *ж.* Паласа матэрыі, прышытая зборкамі да прыполу спадніцы, фартуха і пад. *Спадніца з фальбонамі.* ‖ *прым.* **фальбо́ністы**, -ая, -ае.

**ФАЛЬВА́РАК**, -рка, *мн.* -ркі, -ркаў, *м.* **1.** У феадальнай Польшчы, Літве, Беларусі і Заходняй Украіне: панская гаспадарка з комплексам будынкаў, заснаваная на паншчыннай працы сялян. **2.** Невялікая сядзіба пана, хутар. ‖ *прым.* **фальварко́вы**, -ая, -ае.

**ФАЛЬКЛАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па фальклоры. ‖ *ж.* **фальклары́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **фальклары́сцкі**, -ая, -ае.

**ФАЛЬКЛАРЫ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Навука аб фальклоры, народнай творчасці. ‖ *прым.* **фальклярысты́чны**, -ая, -ае.

**ФАЛЬКЛО́Р**, -у, *м.* Вусная народная творчасць, сукупнасць народных абрадавых дзеянняў. *Беларускі славесны ф.* ‖ *прым.* **фальклО́рны**, -ая, -ае.

**ФАЛЬСІФІКАВА́ЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -каваны; *зак. і незак., што.* Падрабіць (падрабляць), сказіць (скажаць) з мэтай выдаць за сапраўднае. *Ф. гісторыю.* ‖ *наз.* **фальсіфіка́цыя**, -і, *ж.*

**ФАЛЬСІФІКА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто фальсіфікуе што-н. ‖ *ж.* **фальсіфіка́тарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **фальсіфіка́тарскі**, -ая, -ае.

**ФАЛЬСІФІКА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* фальсіфікаваць. **2.** *мн.* -і, -цый. Падробленая рэч, якая выдаецца за сапраўдную; падробка.

**ФАЛЬСТА́РТ**, -у, *М* -рце, *м.* У спорце: старт, узяты кім-н. з удзельнікаў спаборніцтва раней, чым патрэбна.

**ФАЛЬЦ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Месца згібу аддрукаванага аркуша пры фальцаванні. **2.** Шво на месцы змацавання тонкіх металічных лістоў. **3.** Тое, што і *паз* (у 1 знач.).

**ФАЛЬЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны; *незак., што* (спец.). **1.** Згінаць аддрукаваны аркуш пэўным чынам. *Ф. кнігу.* **2.** Згінаючы і заціскаючы канцы, злучаць (пра металічныя лісты). ‖ *зак.* **сфальцава́ць**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; -цава́ны. ‖ *наз.* **фальцава́нне**, -я, *н. і* **фальцо́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **фальцо́вачны**, -ая, -ае *і* **фальцава́льны**, -ая, -ае. *Фальцовачнае шво. Фальцавальны цэх.*

**ФАЛЬЦО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца фальцоўкай. ‖ *ж.* **фальцо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ФАЛЬЦЭ́Т**, -у, *М* -цэ́це, *м.* Вельмі высокі гук пеўчага голасу, які патрабуе асобага прыёму выканання, а таксама сама такая манера спеву. ‖ *прым.* **фальцэ́тны**, -ая, -ае.

**ФАЛЬШ**, -у, *м.* **1.** Падман, ашуканства, а таксама падробка. *Ф. у гульні ў карты. Купіла не залатую рэч, а ф.* **2.** Адсутнасць натуральнасці, няшчырасць, неадпаведнасць праўдзе. *У гутарцы чуўся ф. Штучнасць і ф. рамана.* **3.** Пра спеў: недакладнасць у выкананні, скажэнне.

**ФАЛЬШЫВАМАНЕ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца вырабам фальшывых грошай. ‖ *ж.* **фальшывамане́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ФАЛЬШЫ́ВІЦЬ**, -шы́ўлю, -шы́віш, -шы́віць; *незак.* **1.** Паводзіць сябе ненатуральна, няшчыра, прытварацца. **2.** Пець не ў тон, утвараць фальшывыя гукі. ‖ *зак.* **сфальшы́віць**, -шы́ўлю, -шы́віш, -шы́віць.

**ФАЛЬШЫ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае ў сабе фальш, уводзіць у зман; несапраўдны, падроблены. *Фальшывая даведка.* **2.** Які не адпавядае сапраўднасці, ісціне; памылковы. *Фальшывая нота.* **3.** Прытворны, няшчыры, крывадушны. *Фальшывае спачуванне. Фальшывыя людзі.* ‖ *наз.* **фальшы́васць**, -і, *ж.*

**ФАЛЬШЫ́ЎКА**, -і, *ДМ* -шы́ўцы, *мн.* -і, -шы́вак, *ж.* (разм.). Фальшывы дакумент.

**ФАМІ́ЛІЯ**, -і, *мн.* -і, -лій, *ж.* **1.** Род, шэраг пакаленняў, якія маюць аднаго продка. *Радавітая ф.* **2.** Сям'я, члены сям'і (уст.). ‖ *прым.* **фамі́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Ф. дом Міцкевічаў.*

**ФАМІЛЬЯ́РНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* фамільярны. **2.** Фамільярныя паводзіны, учынкі. *Ф. у адносінах да старэйшых.*

**ФАМІЛЬЯ́РНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., з кім і без дап.* (разм.). Паводзіць сябе развязна, бесцырымонна. *Не надта з ім фамільярнічай.*

**ФАМІЛЬЯ́РНЫ**, -ая, -ае. Развязны, занадта бесцырымонны. *Фамільярныя адносіны да каго-н. Ф. тон.* ‖ *наз.* **фамілья́рнасць**, -і, *ж.*

**ФАНА...** (*гл.* **фона...**). Першая састаўная частка складаных слоў, ужыв. замест «фона...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *фанаграма, фанаграфія, фанаскоп, фанатэка.*

**ФАНАБЭ́РЛІВЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *фанабэрысты.* ‖ *наз.* **фанабэ́рлівасць**, -і, *ж.*

**ФАНАБЭ́РЫСТЫ**, -ая, -ае (разм.). Які любіць фанабэрыцца; з фанабэрыяй. *Ф. дзяцюк. Фанабэрыстая натура.* ‖ *наз.* **фанабэ́рыстасць**, -і, *ж.*

**ФАНАБЭ́РЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *незак.* (разм.). Трымацца з фанабэрыяй; важнічаць, задавацца.

**ФАНАБЭ́РЫЯ**, -і, *ж.* (разм.). Зазнайства, пыхлівасць, ганарыстасць.

**ФАНАГРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́м, *ж.* Дыск, плёнка, магнітная стужка і пад. з гукавым запісам. ‖ *прым.* **фанагра́мны**, -ая, -ае.

**ФАНАГРАФІ́ЧНЫ** *гл.* фонограф.

**ФАНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Раздзел мовазнаўства: вучэнне аб фанемах. *Падручнік па фаналогіі.* **2.** Сістэма фанем мовы. *Беларуская ф.* ‖ *прым.* **фаналагі́чны**, -ая, -ае.

**ФАНА́Т**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Страсны прыхільнік каго-, чаго-н. (артыста, музычнай групы і пад.). ‖ *ж.* **фана́тка**, -і, *мн.* -і, -так.

**ФАНАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Склад думак і паводзіны фанатыка. ‖ *прым.* **фанаты́чны**, -ая, -ае.

**ФАНА́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які слепа адданы толькі сваёй рэлігіі, веры. **2.** *перан.* Чалавек, цалкам адданы якой-н. справе, ідэям і перакананням. *Ф. эстрады.* ‖ *ж.* **фанаты́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак.

**ФАНАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фанатызм. **2.** Прасякнуты фанатызмам, уласцівы фанатыку. *Фанатычная адданасць справе.* ‖ *наз.* **фанаты́чнасць**, -і, *ж. Ф. перакананняў.*

**ФАНАТЭ́КА**, -і, *мн.* -і, -тэ́к, *ж.* Сістэматызаваны збор фанаграм.

**ФАНДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; -дава́ны; *незак., што* (спец.). Ствараць фонд. *Ф. тавары.* ‖ *наз.* **фандава́нне**, -я, *н.*

**ФАНЕ́МА**, -ы, *мн.* -ы, -не́м, *ж.* У мовазнаўстве: абстрактная гукавая адзінка мовы, якая выконвае сэнсаадрознівальную функцыю. ‖ *прым.* **фане́мны**, -ая, -ае *і* **фанематы́чны**, -ая, -ае.

**ФАНЕНДАСКО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Медыцынскі прыбор для праслухоўвання хворых, які складаецца з дзвюх гнуткіх слыхавых трубак, злучаных гукаўлоўнай камерай.

**ФАНЕ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Тонкія драўляныя пласціны для абліцоўкі сталярных вырабаў. **2.** Матэрыял са склееных тонкіх пласцін дрэва з перакрыжаваным размяшчэн-

нем валокнаў драўніны. *Трохслойная ф.* ‖ *прым.* **фанéрны**, -ая, -ае.

**ФАНЕРАВÁЦЬ**, -рýю, -рýеш, -рýе; -рýй; -равáны; *незак., што.* Абліцоўваць фанерай (у 1 знач.). ‖ *наз.* **фанераванне**, -я, *н. і* **фанерóўка**, -і, *ДМ* -óўцы, *ж.* ‖ *прым.* **фаневáльны**, -ая, -ае.

**ФАНÉТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Раздзел мовазнаўства, які вывучае гукі мовы. *Эксперыментальная ф.* **2.** Гукавы склад мовы. *Ф. ўсходніх гаворак.* ‖ *прым.* **фанетычны**, -ая, -ае.

**ФÁНЗА**, -ы, *ДМ* -зе, *мн.* -ы, фанз *і* -аў, *ж.* Сялянская хата ў Кітаі, Карэі. ‖ *прым.* **фáнзавы**, -ая, -ае.

**ФАНЗÁ**, -ы́, *ж.* Кітайская шаўковая тканіна, падобная да тафты. ‖ *прым.* **фанзóвы**, -ая, -ае. *Ф. сарафан.*

**ФАНÓГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Першы прыбор для запісу і ўзнаўлення гукаў. ‖ *прым.* **фанаграфíчны**, -ая, -ае.

**ФАНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** толькі *мн.* Гульня, удзельнікі якой у якасці штрафу выконваюць якія-н. жартоўныя даручэнні. *Гуляць у фанты.* **2.** Рэч, якая аддаецца ўдзельнікам гэтай гульні для жараб'ёўкі. **3.** Заданне, якое даецца ўдзельніку гульні ў якасці штрафу.

**ФАНТАЗЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які любіць фантазіраваць. ‖ *ж.* **фантазёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **фантазёрскі**, -ая, -ае.

**ФАНТАЗÍРАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* **1.** Прыдумваць, уяўляць, мáрыць. **2.** Выдумляць што-н. неправўдападобнае, тое, чаго не можа быць. *Дзеці многа фантазіруюць.* ‖ *зак.* **сфантазíраваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй (да 2 знач.). ‖ *наз.* **фантазíраванне**, -я, *н. і* **фантазёрства**, -а, *н.*

**ФАНТÁЗІЯ**, -і, *мн.* -і, -зій, *ж.* **1.** Здольнасць да творчага ўяўлення і само творчае ўяўленне. *Багатая ф.* **2.** Мара, прадукт чыйго-н. уяўлення. *Гэта не сапраўднасць, а ф.* **3.** Нешта неправўдападобнае, выдуманае. *Гэта дзіцячая ф.* **4.** Дзівацтва; нечаканы, дзіўны ўчынак (разм.). *Прыйшла ў галаву ф.* **5.** Музычны твор свабоднага характару; імправізацыя. *Ф. на тэмы беларускіх народных песень.* ‖ *прым.* **фантазíйны**, -ая, -ае.

**ФАНТÁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Струмень вадкасці, газу і пад., які з сілай выкідваецца ўверх пад высокім ціскам. *Ф. нафты. Газавы ф. Кроў б'е фантанам з раны.* **2.** Маса чаго-н., што высока ўзлятае ўверх, з сілай вырываецца адкуль-н. *Вогненны ф. у небе. Радасць б'е фантанам* (перан.). **3.** Збудаванне для падачы вады пад напорам. *Ф. у скверы.* ‖ *прым.* **фантáнны**, -ая, -ае. *Фантанная нафта.*

**ФАНТАНАВÁЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -нýе; *незак.* Выбівацца, выходзіць на паверхню чаго-н. у выглядзе фантана (у 1 і 2 знач.). *Нафта фантануе. Ф. ідэямі.* ‖ *наз.* **фантанавáнне**, -я, *н.*

**ФАНТАСМАГÓРЫЯ**, -і, *ж.* Прывіды, вычварныя малюнкі, што бачацца чалавеку ў хваравітым сне. ‖ *прым.* **фантасмагарычны**, -ая, -ае.

**ФАНТÁСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які любіць аддавацца фантазіі (у 2 знач.), фантазёр. **2.** Пісьменнік, што працуе ў галіне фантастыкі (у 3 знач.). ‖ *ж.* **фантáстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ФАНТÁСТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Тое, што заснавана на творчым уяўленні, на фантазіі. *Ф. народных паданняў.* **2.** Штон. нерэальнае, немагчымае. *Асушыць такое балота! Гэта ж ф.!* **3.** Жанр мастацкай літаратуры, кіно і мастацтва, у творах якога адлюстроўваюцца выдуманыя, звышнатуральныя падзеі і з'явы, а таксама самі такія творы. *Навуковая ф.* ‖ *прым.* **фантастычны**, -ая, -ае. *Ф. раман. Фантастычная літаратура.*

**ФАНТАСТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фантастыка. **2.** Падобны на фантазію (у 2 знач.); казачны, чароўны, звышнатуральны. *Ф. прывід. Ф. пейзаж. Фантастычнае святло.* **3.** Зусім неверагодны, неправўдападобны. *Фантастычная задума. Гэты чалавек фантастычна* (прысл.) *таленавіты.* ‖ *наз.* **фантасты́чнасць**, -і, *ж.*

**ФАНТÓМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прывід, здань. *Таямнічы ф.*

**ФАНФÁРА**, -ы, *мн.* -ы, -фáр, *ж.* **1.** Медны духавы музычны інструмент, які мае выгляд падоўжанай трубы. *Пад гукі фанфар* (таксама перан.: вельмі ўрачыста). **2.** Музычная фраза, кароткі сігнал урачыстага характару, які выконваецца на такім інструменце. *Загучалі фанфары.* ‖ *прым.* **фанфáрны**, -ая, -ае.

**ФАНФАРÓН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Выхваляка, хвалько, чалавек, які выстаўляе напаказ свае здольнасці. ‖ *прым.* **фанфарóнскі**, -ая, -ая.

**ФАНФАРÓНСТВА**, -а, *н.* (разм.). Паводзіны фанфарона, пахвальба.

**ФАНФАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Трубач, які іграе на фанфары.

**ФÁРА**, -ы, *мн.* -ы, фар, *ж.* Ліхтар з рэфлектарам на аўтамабілі, лакаматыве, матацыкле і пад. для асвятлення шляху. *Пярэднія фары.*

**ФАРАÓН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тытул старажытнаегіпецкіх цароў, а таксама асоба, якая мае гэты тытул. ‖ *прым.* **фараóнаўскі**, -ая, -ае.

**ФÁРБА**, -ы, *мн.* -ы, фарб *і* -аў, *ж.* **1.** Рэчыва, што надае той ці іншы колер прадметам, якія яно пакрывае або насычае. *Ф. на ацэтоне.* **2.** звычайна *мн.* Каларыт, колер, тон (на карціне, у прыродзе і інш.). *Фарбы асенняй прыроды. Абмаляваць падзеі яркімі фарбамі.* **4.** Тое, што і *румянец. Твар меў штучную фарбу.* ‖ *прым.* **фáрбавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ФАРБАВÁЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рэчыва, якое выкарыстоўваецца для фарбавання. *Натуральныя фарбавальнікі.*

**ФАРБАВÁЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* Майстэрня або цэх, дзе фарбуюць тканіны.

**ФАРБАВÁЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па фарбавальнай справе. ‖ *ж.* **фарбавáльшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ФАРБАВÁЦЦА**, -бýюся, -бýешся, -бýецца; -бýйся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пакрывацца, насычацца фарбай. *Сцены добра фарбуюцца.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пэцкаць сабой (пра што-н. нетрывала афарбаванае, пра свежую фарбу). *Дзверы яшчэ фарбуюцца.* **3.** Падмалёўваць вусны, твар, валасы (разм.). ‖ *зак.* **пафарбавáцца**, -бýюся, -бýешся, -бýецца; -бýйся (да 1 і 3 знач.), **вы́фарбавацца**, -буюся, -буешся, -буецца; -буйся (да 1 і 3 знач.), **афарбавáцца**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -бýецца (да 1 знач.) *і* **нафарбавáцца**, -бýюся, -бýешся, -бýецца; -бýйся (да 3 знач.).

**ФАРБАВÁЦЬ**, -бýю, -бýеш, -бýе; -бýй; -бавáны; *незак., што.* **1.** Пакрываць або насычаць фарбай. *Ф. сцены.* **2.** Пра нетрывала, няякасна або нядаўна афарбаваныя рэчы: пэцкаць (разм.). **3.** Падмалёўваць вусны, вейкі і пад. ‖ *зак.* **пафарбавáць**, -бýю, -бýеш, -бýе; -бýй; -бавáны (да 1 і 3 знач.), **афарбавáць**, -бýю, -бýеш, -бýе; -бýй; -бавáны (да 1 знач.) *і* **вы́фарбаваць**, -бую, -буеш, -буе; -буй; -баваны (да 1 і 3 знач.). ‖ *наз.* **фарбавáнне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.), **афарбóўка**, -і, *ДМ* -óўцы, *ж.* (да 1 знач.) *і* **пафарбóўка**, -і, *ДМ* -óўцы, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **фарбавáльны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ФАРВÁТАР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Водны шлях для бяспечнага плавання суднаў, вызначаны сігнальнымі знакамі. *Марскі ф.* **2.** *перан.* Асноўная лінія, кірунак дзейнасці, творчасці і пад. *Яго творчасць знаходзіцца ў фарватары сусветнай паэзіі.* ‖ *прым.* **фарвáтарны**, -ая, -ае.

**ФАРМА...** (*гл.* **форма...**). Першая састаўная частка складаных слоў; пішацца, калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *фармазмена, фарматворчасць, фармапласт, фармацэх.*

**ФАРМАВÁЦЬ**, -мýю, -мýеш, -мýе; -мýй; -мавáны; *незак., што* (спец.). Апрацоўваючы, штампуючы, прыдаваць чаму-н. якую-н. форму. *Ф. цэглу.* ‖ *зак.* **адфармавáць**, -мýю, -мýеш, -мýе; -мýй; -мавáны *і* **сфармавáць**, -мýю, -мýеш, -мýе, -мýй; -мавáны. ‖ *наз.* **фармавáнне**, -я, *н. і* **фармóўка**, -і, *ДМ* -мóўцы, *ж.* ‖ *прым.* **фармóвачны**, -ая, -ае.

**ФАРМАВЫ́**, -áя, -óе. **1.** *гл.* форма. **2.** Прыгодны для адліўкі вырабаў у форме (у 5 знач.). *Фармавая сумесь.* **3.** Зроблены ў форме (у 5 знач.). *Ф. хлеб.*

**ФАРМАКАЛÓГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб уздзеянні лекавых рэчываў на арганізм чалавека і жывёлы. ‖ *прым.* **фармакалагíчны**, -ая, -ае.

**ФАРМАКАПÉЯ**, -і, *ж.* (спец.). Афіцыйны звод правіл, якім кіруюцца фармацэўты пры падрыхтоўцы, праверцы, захоўванні, назначэнні лякарстваў.

**ФАРМАКО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па фармакалогіі.

**ФАРМАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што* (кніжн.). Паказаць (паказваць) з'яву, працэс і пад. ў фармальным выглядзе. ‖ *наз.* **фармаліза́цыя**, -і, *ж. Ф. апісання.*

**ФАРМАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Прытрымліванне якіх-н. знешніх форм на шкоду сутнасці справы. *Бюракратычны ф.* **2.** У мастацтве, эстэтыцы і іншых гуманітарных навуках: агульная назва кірункаў, якія абсалютызуюць ролю формы, знешняга выражэння. *Ф. у літаратуразнаўстве.* ‖ *прым.* **фармалісты́чны**, -ая, -ае *і* **фармалі́сцкі**, -ая, -ае.

**ФАРМАЛІ́Н**, -у, *м.* Дэзынфіцыруючы сродак з рэзкім удушлівым пахам. ‖ *прым.* **фармалі́навы**, -ая, -ае.

**ФАРМАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек, чыя работа прасякнута фармалізмам (у 1 знач.). **2.** Паслядоўнік фармалізму (у 2 знач.). ‖ *ж.* **фармалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **фармалі́сцкі**, -ая, -ае.

**ФАРМАЛІ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* (разм.). Фармальныя (у 2 знач.) адносіны да чаго-н., прытрымліванне фармальнасцей, схільнасць да знешняй формы.

**ФАРМА́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* фармальны. **2.** *мн.* -і, -ей. Дзеянні, неабходныя з пункту погляду пэўнага парадку пры выкананні, афармленні чаго-н. *Вытрымаць усе фармальнасці.*

**ФАРМА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* форма. **2.** Прасякнуты фармалізмам (у 1 знач.). *Ф. падыход да справы.* **3.** Заснаваны на прынцыпах фармалізму (у 2 знач.). *Ф. метад.* **4.** Зроблены афіцыйна, законна. *Ф. дазвол. Фармальная прычына.* **5.** Такі, дзе захавана толькі знешняя форма, які існуе толькі па форме, для выгляду. *Ф. падыход. Фармальнае права.* ‖ *наз.* **фарма́льнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ФАРМА́Т**, -у, *М* -ма́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Памер кнігі, аркуша, старонкі і пад. *Кніга вялікага фармату.* ‖ *прым.* **фарма́тны**, -ая, -ае.

**ФАРМАЦІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.* Упарадкаваць сектары носьбітаў інфармацыі ў камп'ютары з мэтай падрыхтоўкі іх для запісу новых дадзеных. ‖ *наз.* **фармаці́раванне**, -я, *н.*

**ФАРМА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Пэўная стадыя ў развіцці грамадства, а таксама структура грамадства, уласцівая дадзенай стадыі развіцця, якая характарызуецца ўласцівым толькі ёй спосабам вытворчасці. **2.** Сістэма поглядаў, перакананняў, уласцівая якому-н. перыяду грамадскага жыцця. *Чалавек новай фармацыі.* **3.** Сукупнасць генетычна звязаных горных парод аднаго часу і спосабу ўтварэння (спец.). ‖ *прым.* **фармацы́йны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ФАРМАЦЭ́ЎТ**, -а, *М* -э́ўце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па фармацэўтыцы.

**ФАРМАЦЭ́ЎТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Комплекс дысцыплін, якія вывучаюць пытанні здабычы, апрацоўкі, вырабу, захоўвання і водпуску лекавых сродкаў. ‖ *прым.* **фармацэўты́чны**, -ая, -ае.

**ФАРМІРАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* фарміравацца, фарміраваць. **2.** *мн.* -і, -яў. Сфарміраванае вайсковае злучэнне, часць.

**ФАРМІРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *незак.* **1.** Складвацца, набываць пэўную форму, закончанасць, сталасць у выніку развіцця, змен. *Пэўныя рысы характару фарміруюцца ў дзяцінстве.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Стварацца, арганізоўвацца (пра групу, калектыў і пад.). *Фарміруецца група народнага кантролю.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Складацца з вагонаў, суднаў шляхам размяшчэння іх у пэўным парадку. *Фарміруецца цягнік на Берлін.* ‖ *зак.* **сфармірава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся. ‖ *наз.* **фармірава́нне**, -я, *н. і* **фарміро́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.*

**ФАРМІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Выпрацоўваць у каго-н. адпаведныя рысы характару, светапогляд і пад. *Ф. характар вучняў.* **2.** *што.* Ствараць, арганізоўваць (калектыў, клас, вайсковую часць і пад.). *Ф. атрад. Ф. урад.* **3.** *што.* Састаўляць цягнік, счэпліваючы пэўным парадкам вагоны. *Ф. таварны састаў.* ‖ *зак.* **сфармірава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. ‖ *наз.* **фармірава́нне**, -я, *н. і* **фарміро́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **фарміро́вачны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.). *Ф. пункт.*

**ФАРМО́ВАЧНЫ** *гл.* фармаваць.

**ФАРМО́ЎКА** *гл.* фармаваць.

**ФАРМО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па фармоўцы. ‖ *ж.* **фармо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ФАРМУЛЁ́ЎКА**, -і, *ДМ* -лёўцы, *мн.* -і, -лёвак, *ж.* **1.** *гл.* фармуляваць. **2.** Сфармуляваная думка, формула (у 1 знач.). *Выразная ф.*

**ФАРМУЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны; *незак., што.* Дакладна выражаць думкі, рашэнні і пад. *Ф. вывады камісіі.* ‖ *зак.* **сфармулява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны. ‖ *наз.* **фармулё́ўка**, -і, *ДМ* -лёўцы, *ж. і* **фармулява́нне**, -я, *н.*

**ФАРМУЛЯ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У дарэвалюцыйнай Расіі: паслужны спіс, куды заносіліся звесткі аб праходжанні службы чыноўнікамі. **2.** Ліст, кніга або бланк, куды заносяцца асноўныя звесткі пра стан і эксплуатацыю механізма, збудавання (спец.). *Ф. машыны.* **3.** Бібліятэчная ўліковая картка. ‖ *прым.* **фармуля́рны**, -ая, -ае.

**ФАРПО́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Перадавы пункт на граніцы, перадавая ўмацаваная пазіцыя. **2.** *перан.* Перадавы пункт, апора чаго-н. *Акадэмія — ф. навукі.* ‖ *прым.* **фарпо́ставы**, -ая, -ае.

**ФАРС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тэатральная п'еса лёгкага, сатырыка-гумарыстычнага зместу. **2.** *перан.* Нешта ганебнае, цынічнае. *Пусты ф.* ‖ *прым.* **фа́рсавы**, -ая, -ае.

**ФАРСІ́РАВАНЫ**, -ая, -ае. Які адбываецца хутчэй, чым звычайна; паскораны. *Фарсіраваныя тэмпы.*

**ФАРСІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Узмацніць (узмацняць), паскорыць (паскараць). *Ф. пуск станцыі.* **2.** Пераадолець (пераадольваць) якую-н. перашкоду або рубеж праціўніка. *Ф. пераправу.* ‖ *наз.* **фарсі́раванне**, -я, *н. Ф. ракі.*

**ФАРСІ́СТЫ**, -ая, -ае (разм.). Які любіць фарсіць; франтаваты, модны. *Ф. хлопец. Фарсістае адзенне.* ‖ *прым.* **фарсі́стасць**, -і, *ж.*

**ФАРСІ́ЦЬ**, -ршу́, -сі́ш, -сі́ць; -сі́м, -сіце́, -ся́ць; *незак.* (разм.). Франціць, важнічаць, выстаўляючы што-н. напаказ. *Ф. гадзіннікам.*

**ФАРСУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Той, хто любіць фарсіць. ‖ *ж.* **фарсу́ха**, -і, *ДМ* -су́се, *мн.* -і, -су́х.

**ФАРСУ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (спец.). Прыбор для распыльвання якіх-н. вадкасцей або парашкападобнага паліва ў топках паравых катлоў, цыліндрах рухавікоў і пад. *Ф. паравоза.*

**ФАРТУ́НА**, -ы, *ж.* Лёс, удача, шчаслівы выпадак. *Ф. мне спадарожнічае.*

**ФАРТУ́Х**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Прадмет адзення пэўнага крою, які надзяваюць спераду на вопратку, каб засцерагчы яе ад забруджвання. **2.** Чахол, рознага роду покрыва для машын, тэхнічных прыстасаванняў і пад. (спец.). ‖ *памянш.* **фартушо́к**, -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **фартухо́вы**, -ая, -ае.

**ФАРТЫ́СІМА**, *прысл.* (спец.). Яшчэ мацней і больш гучна, чым фортэ. *Іграць ф.*

**ФАРТЫФІКА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука аб умацаванні вайсковых пазіцый і спосабах абароны ад сродкаў паражэння. **2.** Узвядзенне ваенна-інжынерных збудаванняў, а таксама самі такія збудаванні. *Палявая ф.* ‖ *прым.* **фартыфікацы́йны**, -ая, -ае.

**ФАРТЭПІЯ́НА**, *нескл., н.* Клавішны струнны музычны інструмент (раяль ці піяніна). *Іграць на ф.* ‖ *прым.* **фартэпія́нны**, -ая, -ае.

**ФАРФО́Р**, -у, *м.* **1.** Мінеральная маса з высакаякасных гатункаў белай гліны. *Кубачкі з фарфору.* **2.** *зб.* Вырабы, посуд з такой масы. *Выстава фарфору 19 ст.* ‖ *прым.* **фарфо́равы**, -ая, -ае.

**ФАРЦО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Той, хто займаецца спекуляцыяй рэчамі, звычайна перакупленымі ў чужаземцаў. ‖ *ж.* **фарцо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **фарцо́ўшчыцкі**, -ая, -ае.

**ФАРШ**, -у, *м.* **1.** Здробненае мяса для прыгатавання розных відаў ежы. *Курыны ф.* **2.** Любая здробненая начынка для страў. *Грыбны ф.* ‖ *прым.* **фа́ршавы**, -ая, -ае.

**ФАРШМА́К**, -у, *м.* Страва са здробненага мяса ці селядца, запечаных з бульбай, цыбуляй.

**ФАРШЫРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак., што.* Начыняць фаршам. *Ф. рыбу.* || *зак.* **зафаршырава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. || *наз.* **фаршырава́нне**, -я, *н. і* **фаршыро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.*

**ФАРЫСЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** У Старажытнай Іўдзеі: член іўдзейскай секты, што вызначалася рэлігійным фанатызмам і дагматызмам. **2.** *перан.* Крывадушны чалавек, ханжа. || *ж.* **фарысе́йка**, -і, *ДМ* -се́йцы, *мн.* -і, -се́ек. || *прым.* **фарысе́йскі**, -ая, -ае.

**ФАРЫСЕ́ЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Быць фарысеем, крывадушнічаць.

**ФАРЫСЕ́ЙСТВА**, -а, *н.* Паводзіны фарысея, крывадушнасць.

**ФАРЭ́ЙТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Фурман, які сядзіць на першым кані пры запрэжцы цугам. || *прым.* **фарэ́йтарскі**, -ая, -ае.

**ФАРЭ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Тое, што і *стронга.* || *прым.* **фарэ́левы**, -ая, -ае *і* **фарэ́льны**, -ая, -ае.

**ФАРЭ́РЦЫ**, -аў, *адз.* фарэ́рац, -рца, *м.* Паўночнагерманскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Фарэрскіх астравоў. || *ж.* **фарэ́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. || *прым.* **фарэ́рскі**, -ая, -ае. *Фарэрская мова.*

**ФАС**, -а, *м.* Выгляд спераду, з твару. *Фатаграфавацца ў ф. Павярнуцца фасам.*

**ФАСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *незак., што.* Раскладваць, разважваць і ўпакоўваць што-н. у пэўных колькасцях, дозах. *Ф. пячэнне. Ф. муку.* || *зак.* **расфасава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны. || *наз.* **фасава́нне**, -я, *н.*, **фасо́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.*, **расфасо́ўванне**, -я, *н. і* **расфасо́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* || *прым.* **фасо́вачны**, -ая, -ае *і* **расфасо́вачны**, -ая, -ае. *Фасовачная машына.*

**ФАСА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пярэдняя галоўная частка будынка, што выходзіць на вуліцу. || *прым.* **фаса́дны**, -ая, -ае.

**ФА́СКА**[1], -і, *ДМ* фа́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* (спец.). Скошаная частка рабра, канта шкла, металічных, драўляных і іншых вырабаў.

**ФА́СКА**[2], -і, *ДМ* фа́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* (разм.). Кадачка з вушкамі.

**ФАСО́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Адно зерне фасолі.

**ФАСО́ЛЯ**, -і, *ж.* Аднагадовая расліна сямейства бабовых з доўгімі вузкімі пладамі-стручкамі, а таксама самі стручкі і яе насенне. || *прым.* **фасо́левы**, -ая, -ае.

**ФАСО́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Форма, крой, па якіх што-н. пашыта. *Модны ф. касцюма.* **2.** Знешні выгляд, форма якога-н. прадмета. *Ф. мэблі.* **3.** Паказная франтаватасць; шык (разм.). *Трымаць ф.* || *прым.* **фасо́нны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ФАСО́НІСТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Прыгожага, моднага фасону. *Фасоністая сукенка.* **2.** Пра чалавека: франтаваты, фарсісты. *Ф. кавалер.* || *наз.* **фасо́ністасць**, -і, *ж.*

**ФАСО́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фасон. **2.** Зроблены па пэўным фасоне, мадэлі або прызначаны для вырабу такіх рэчаў (спец.). *Фасоннае ліццё. Ф. разец.*

**ФАСО́ЎКА** *гл.* фасаваць.

**ФАСО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца фасоўкай. *Ф. тавараў. Аптэчны ф.* || *ж.* **фасо́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ФАСТРЫ́ГА**, -і, *ДМ* -ры́зе, *ж.* Шво вялікімі шыўкамі, якім часова папярэдне сшываецца што-н.

**ФАСТРЫГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны; *незак., што.* Шыць, сшываць рэдкімі шыўкамі, фастрыгаю, намячаючы лінію швоў ці рыхтуючы да прымеркі. *Ф. сукенку. Ф. паліто.* || *зак.* **прафастрыгава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны *і* **сфастрыгава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны. || *наз.* **фастрыгава́нне**, -я, *н.*

**ФАСТ-ФУ́Д**, -у, *м.* **1.** Сістэма экспрэс-харчавання; хуткае харчаванне. **2.** Страва, набытая ў рэстаране сістэмы экспрэс-харчавання.

**ФАСФАРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які свяціцца бледным святлом, як фосфар.

**ФАСФА́Т**, -у, *М* -фа́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Соль фосфарнай кіслаты, якая выкарыстоўваецца як угнаенне, а таксама ў тэхніцы і медыцыне. || *прым.* **фасфа́тавы**, -ая, -ае *і* **фасфа́тны**, -ая, -ае.

**ФАТ**, -а, *М* фа́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пусты, пошлы чалавек, які любіць рысавацца, пазіраваць.

**ФАТА́**, -ы́, *ДМ* фаце́, *ж.* Галаўны ўбор нявесты: лёгкая белая накідка з кісяі або карунак. *Вясельная ф.*

**ФАТАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). Схільны да фатаўства. || *наз.* **фатава́тасць**, -і, *ж.*

**ФАТАГРАФАВА́ЦЦА**, -фу́юся, -фу́ешся, -фу́ецца; -фу́йся; *незак.* Атрымліваць сваё адлюстраванне пры дапамозе фатаграфіі (у 1 знач.). || *зак.* **сфатаграфава́цца**, -фу́юся, -фу́ешся, -фу́ецца; -фу́йся. || *наз.* **фатаграфава́нне**, -я, *н.*

**ФАТАГРАФАВА́ЦЬ**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны; *каго-што., незак.* Здымаць фатаграфічным апаратам. || *зак.* **сфатаграфава́ць**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны. || *наз.* **фатаграфава́нне**, -я, *н.*

**ФАТАГРАФІ́ЗМ**, -у, *м.* Знешне дакладнае, літаральнае, але не абагуленае адлюстраванне рэчаіснасці.

**ФАТАГРА́ФІЯ**, -і, *мн.* -і, -фій, *ж.* **1.** Атрыманне вобразаў прадметаў на святлоадчувальных пласцінках, плёнках. *Каляровая ф.* **2.** Здымак, атрыманы такім спосабам. *Студэнцкая ф.* **3.** Майстэрня, установа, дзе займаюцца фатаграфаваннем. || *прым.* **фатаграфі́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ФАТАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Містычная вера ў непазбежнасць лёсу, у тое, што ўсё ў свеце нібы загадзя вызначана наперад. || *прым.* **фаталісты́чны**, -ая, -ае.

**ФАТАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які верыць у непазбежнасць лёсу. || *ж.* **фаталі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ФАТАЛІСТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фаталізм. **2.** Тое, што і *фатальны.* || *наз.* **фаталісты́чнасць**, -і, *ж.*

**ФАТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Быццам прызначаны лёсам; непазбежны, наканаваны. *Ф. збег акалічнасцей. Фатальнае супадзенне.* || *наз.* **фата́льнасць**, -і, *ж.*

**ФАТАЎСКІ́**, -а́я, -о́е. Уласцівы фату. *Фатаўскія манеры.*

**ФАТАЎСТВО́**, -а́, *н.* Паводзіны фата.

**ФАТО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па фатаграфіі (у 1 знач.).

**ФА́ЎНА**, -ы, *ж.* Сукупнасць усіх відаў жывёл пэўнай мясцовасці ці геалагічнага перыяду. *Ф. Белавежскай пушчы.*

**ФАЦЭ́Т**, -а, *М* -цэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Камічны, забаўны чалавек або нейкі малазнаёмы чалавек.

**ФАЦЭ́ТНЫ**, -ая, -ае (разм.). Камічны, забаўны. || *наз.* **фацэ́тнасць**, -і, *ж.*

**ФАШЫ́ЗМ**, -у, *м.* Ідэалогія ваяўнічага шавінізму і расізму, якая імкнецца да знішчэння дэмакратыі, устанаўлення рэжыму жорсткай рэакцыі і развязвання захопніцкіх войнаў. || *прым.* **фашы́сцкі**, -ая, -ае. *Ф. рэжым.*

**ФАШЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -шы́н, *ж.* (спец.). Звязаны пучок, жмут галля, чароту для ўмацавання насыпаў, плацін, дарог па балоце і пад. || *прым.* **фашы́нны**, -ая, -ае.

**ФАШЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік фашызму, член фашысцкай арганізацыі. || *ж.* **фашы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **фашы́сцкі**, -ая, -ае.

**ФАЭТО́Н**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Лёгкі экіпаж з адкідным верхам. **2.** Легкавы аўтамабіль, у якім можна адкідаць верх. || *прым.* **фаэто́нны**, -ая, -ае.

**ФАЭТО́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Птушка сямейства веслаupdateногіх, якая жыве ў трапічных морах.

**ФАЯ́НС**, -у, *м.* **1.** Мінеральная маса з асобных гатункаў гліны з дамешкам гіпсу і іншых рэчываў, якая служыць для вырабу керамікі. **2.** *зб.* Посуд, вырабы з гэтай масы. || *прым.* **фая́нсавы**, -ая, -ае.

**ФЕАДА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пры феадалізме: прадстаўнік пануючага класа, памешчык, які эксплуатуе прыгонных сялян.

**ФЕАДАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* Грамадска-эканамічная фармацыя, у аснове якой ляжыць уласнасць феадала на сродкі вытворчасці і прыгонных сялян. || *прым.* **феада́льны**, -ая, -ае.

**ФЕДЭРАЛІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Дзяржаўны лад, заснаваны на прынцыпах федэрацыі (у 1 знач.). **2.** Палітычны рух за ўстанаўленне такога ладу. || *прым.* **федэралі́сцкі**, -ая, -ае.

**ФЕДЭРАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік федэралізму. || *ж.* **федэралі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ФЕДЭРА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Дзяржава, якая складаецца з самастойных дзяржаў або дзяржаўных утварэнняў, што захоўваюць пэўную юрыдычную і палітычную самастойнасць; адпаведная фор-

ма дзяржаўнага ўладкавання. *Расійская Ф.* **2.** Саюз асобных таварыстваў, арганізацый. *Шахматная ф.* ‖ *прым.* **федэратыўны**, -ая, -ае *і* **федэра́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Федэратыўная дзяржава. Федэратыўная адзінка. На федэратыўных пачатках. Федэральны канцлер.*

**ФЕЕРВЕ́РК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Каляровыя агні ў паветры, якія атрымліваюцца пры спальванні разнастайных параховых сумесей у час розных свят, урачыстасцей і пад. *Святочны ф. Ф. слоў* (перан.: пра лішняе мнагаслоўе). ‖ *прым.* **феерве́рачны**, -ая, -ае.

**ФЕЕРВЕ́РКЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У царскай Расіі: унтэр-афіцэр артылерыі.

**ФЕЕРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* феерыя. **2.** Казачны, чароўны, як у феерыі. *Феерычнае відовішча.* ‖ *наз.* **феерычнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ФЕЕ́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* **1.** Тэатральнае або цыркавое прадстаўленне з казачным сюжэтам, раскошнымі дэкарацыямі і рознымі сцэнічнымі эфектамі. **2.** *перан.* Чароўнае, казачнае відовішча. ‖ *прым.* **феерычны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Феерычныя эфекты.*

**ФЕЛА́Х**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Селянін-земляроб у арабскіх краінах. ‖ *прым.* **фела́хскі**, -ая, -ае.

**ФЕЛЬД'Е́ГЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ваенны або ўрадавы кур'ер для дастаўкі вельмі важных даручэнняў. ‖ *прым.* **фельд'е́герскі**, -ая, -ае. *Фельд'егерская пошта.*

**ФЕЛЬДМА́РШАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У рускай дарэвалюцыйнай і некаторых замежных арміях: вышэйшае генеральскае званне, а таксама асоба, якая мае гэта званне. ‖ *прым.* **фельдма́ршальскі**, -ая, -ае.

**ФЕЛЬДФЕ́БЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* У рускай дарэвалюцыйнай і некаторых замежных арміях: званне старшага унтэрафіцэра ў пяхоце, памочніка камандзіра роты па гаспадарцы, а таксама асоба, якая мае гэта званне. ‖ *прым.* **фельдфе́бельскі**, -ая, -ае.

**ФЕЛЬЕТАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аўтар фельетонаў. ‖ *ж.* **фельетані́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **фельетані́сцкі**, -ая, -ае.

**ФЕЛЬЕТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Газетны або часопісны артыкул на злабадзённую тэму, у якім выкарыстаны гумарыстычныя і сатырычныя прыёмы выкладання. ‖ *прым.* **фельето́нны**, -ая, -ае.

**ФЕ́ЛЬЧАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Памочнік урача, асоба з сярэдняй медыцынскай адукацыяй. ‖ *ж.* **фе́льчарка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **фе́льчарскі**, -ая, -ае. *Фельчарскія курсы.*

**ФЕЛЮ́ГА**, -і, *ДМ* -люзе, *мн.* -і, -люг, *ж.* Невялікае паруснае бяспалубнае судна на паўднёвых морах.

**ФЕН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Электрычны прыбор для сушкі валасоў нагрэтым паветрам.

**ФЕНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел біялогіі, які вывучае сезонныя з'явы ў жывой прыродзе, змены ў раслінным і жывёльным свеце, абумоўленыя зменай пор года і ўмовамі надвор'я. ‖ *прым.* **феналагі́чны**, -ая, -ае.

**ФЕНАМЕНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Выключны, незвычайны; выдатны па сваіх якасцях. *Фенаменальныя здольнасці. Ф. голас.* ‖ *наз.* **фенамена́льнасць**, -і, *ж.*

**ФЕ́НІКС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Міфалагічная птушка, якая валодае здольнасцю пры набліжэнні смерці згараць, а потым зноў узнікаць з попелу. **2.** Сімвал вечнага абнаўлення. *Узнік, як ф. з попелу.*

**ФЕНІ́Л**, -у, *м.* Вуглевададародны радыкал[2] (у 2 знач.), астатак бензолу, што ўваходзіць у склад многіх арганічных злучэнняў. ‖ *прым.* **фені́лавы**, -ая, -ае.

**ФЕНО́Л**, -у, *м.* Арганічнае злучэнне, вытворнае бензолу, араматычны вуглевадарод; карболавая кіслата. ‖ *прым.* **фено́лавы**, -ая, -ае.

**ФЕНО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па феналогіі.

**ФЕНО́МЕН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Незвычайная, асаблівая з'ява, рэдкі факт. **2.** Пра чалавека, які адрозніваецца выдатнымі здольнасцямі, талентам. *Ён быў фенаменам розуму і высакароднасці.*

**ФЕРАСПЛА́Ў**, -ла́ву, *мн.* -ла́вы, -ла́ваў, *м.* (спец.). Сплаў жалеза з якім-н. іншым элементам. ‖ *прым.* **ферасплаўны**, -ая, -ае.

**ФЕРЗЬ**, ферзя́, *мн.* ферзі́, -ёў, *м.* Самая моцная фігура ў шахматнай гульні. ‖ *прым.* **фе́рзевы**, -ая, -ае. *Ф. гамбіт.*

**ФЕ́РМА**[1], -ы, *мн.* -ы, ферм *і* -аў, *ж.* **1.** Жывёлагадоўчая гаспадарка сельскагаспадарчага прадпрыемства. *Лепшая ў раёне малочная ф.* **2.** Прыватнае сельскагаспадарчае прадпрыемства, заснаванае на ўласнай або арандаванай зямлі.

**ФЕ́РМА**[2], -ы, *мн.* -ы, ферм *і* -аў, *ж.* (спец.). Збудаванне, канструкцыя са злучаных між сабой металічных ці драўляных брусоў. *Маставая ф.* ‖ *прым.* **фе́рмавы**, -ая, -ае.

**ФЕРМЕ́НТ**, -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Бялковае рэчыва, якое выпрацоўваецца клеткай і паскарае хімічныя рэакцыі ў жывых сістэмах. ‖ *прым.* **ферме́нтны**, -ая, -ае.

**ФЕ́РМЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Уладальнік або арандатар фермы[1] (у 2 знач.). ‖ *прым.* **фе́рмерскі**, -ая, -ае.

**ФЕ́РМЕРСТВА**, -а, *н.* **1.** Фермерская сістэма гаспадаркі. **2.** *зб.* Фермеры.

**ФЕРТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Старая назва літары «ф». **2.** Самаздаволены, фарсісты і франтаваты чалавек (разм.). ◊ **Хадзіць фертам** (разм.) — мець самаздаволены выгляд.

**ФЕ́СКА**, -і, *ДМ* фесцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* Шапачка ў форме ўсечанага конуса з кутасом (галаўны ўбор у некаторых краінах Блізкага Усходу).

**ФЕСТО́Н**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адзін з выступаў зубчастай аблямоўкі па краях сукенкі, фіранкі, штор і пад. ‖ *памянш.* **фесто́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **фесто́нны**, -ая, -ае.

**ФЕСТЫВА́ЛЬ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Шырокая грамадская ўрачыстасць з паказам і праглядам дасягненняў якіх-н. відаў мастацтва. *Ф. дакументальных фільмаў.* ‖ *прым.* **фестыва́льны**, -ая, -ае.

**ФЕТР**, -у, *м.* Лепшы гатунак лямцу, які ідзе на выраб капелюшоў, валёнак і інш. ‖ *прым.* **фе́травы**, -ая, -ае.

**ФЕТЫ́Ш**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У першабытных народаў: прадмет, надзелены звышнатуральнай магічнай сілай, які служыць аб'ектам рэлігійнага культу. **2.** *перан.* Тое, што карыстаецца бясспрэчным прызнаннем, чаму вераць і слепа пакланяюцца.

**ФЕТЫШЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак. і незак., што.* Ператвараць (ператвараць) што-н. у фетыш (у 2 знач.); адносіцца да чаго-н. як да фетыша. ‖ *наз.* **фетышыза́цыя**, -і, *ж.*

**ФЕТЫШЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Культ неадушаўлёных прадметаў у першабытных народаў. **2.** Пакланенне фетышам (у 2 знач.), фетышызацыя чаго-н. ‖ *прым.* **фетышы́сцкі**, -ая, -ае.

**ФЕХТАВА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца фехтаваннем. ‖ *ж.* **фехтава́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ФЕХТАВА́ННЕ**, -я, *н.* Від спорту: мастацтва барацьбы на рапірах, шпагах, шаблях і пад.

**ФЕХТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак.* Біцца на рапірах, шпагах, шаблях і пад.; займацца фехтаваннем. ‖ *прым.* **фехтава́льны**, -ая, -ае.

**ФЕШЭНЕ́БЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які адпавядае патрабаванням найлепшага густу і моды; элегантны, раскошны. *Ф. дом адпачынку.* ‖ *наз.* **фешэне́бельнасць**, -і, *ж.*

**ФЕ́Я**, -і, *мн.* -і, фей, *ж.* У заходнееўрапейскай міфалогіі: істота жаночага полу, здольная рабіць цуды; чараўніца. *Добрая ф. Злая ф.*

**ФІ́БРА**[1], -ы, *мн.* -ы, фібр *і* -аў, *ж.* **1.** Валакно расліннай або жывёльнай тканкі (уст.). **2.** *перан., мн.* У выразе: **усімі фібрамі душы** — вельмі моцна, страсна. *Ненавідзець усімі фібрамі душы. Імкнуцца ўсімі фібрамі душы.*

**ФІ́БРА**[2], -ы, *ж.* (спец.). Трывалая папяровая маса, апрацаваная хімічным спосабам і спрасаваная, якая замяняе скуру, а таксама з'яўляецца ізаляцыйным матэрыялам. ‖ *прым.* **фі́бравы**, -ая, -ае. *Ф. чамадан.*

**ФІБРО́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ом, *ж.* (спец.). Дабраякасная пухліна з валакністай злучальнай тканкі. ‖ *прым.* **фібро́мны**, -ая, -ае *і* **фібраматозны**, -ая, -ае.

**ФІ́ГА**[1], -і, *ДМ* фізе, *мн.* -і, фіг, *ж.* (разм.). Тое, што і *дуля* (у 2 знач.). ◊ **Фіга з маслам** — нічога, зусім нічога. **Фіга на талерцы** — непрыемнасць для каго-н., прыхаваная ветлівасцю, далікатнасцю.

**ФІ́ГА**[2], -і, *ДМ* фі́зе, *мн.* -і, фіг, *ж.* **1.** Субтрапічнае дрэва сямейства тутавых, смакоўніца, інжыр. **2.** Плод гэтага дрэва. ‖ *прым.* **фі́гавы**, -ая, -ае.

**ФІ́ГЛІ-МІ́ГЛІ**, фі́гляў-мі́гляў (разм.). Жарты, хітрыкі, незразумелыя і непрыстойныя прыёмы для дасягнення чаго-н. *Ведаю я вашы ф., не пройдзе!*

**ФІГЛЯ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Фокуснік, акрабат (уст.). **2.** *перан.* Пра чалавека, які імкнецца прыцягнуць да сябе ўвагу крыўляннем, жартамі (разм.). ‖ *прым.* **фігля́рскі**, -ая, -ае.

**ФІГЛЯ́РНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Тое, што і *фіглярыць*.

**ФІГЛЯ́РСТВА**, -а, *н.* (разм.). Паводзіны фігляра або выхадка фігляра (у 2 знач.).

**ФІГЛЯ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* (разм.). Займацца фіглярствам, крыўляцца.

**ФІГУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -гу́р, *ж.* **1.** У геаметрыі: частка плоскасці, абмежаваная замкнутай лініяй, а таксама наогул сукупнасць размешчаных пэўным чынам пунктаў, ліній, паверхней і цел. **2.** Комплекс рухаў пры выкананні чаго-н. (у танцы, пры катанні на лыжах і пад.). *Першая ф. кадрылі.* **3.** Постаць чалавека або жывёлы ў скульптуры, жывапісе. *Скульптурная ф.* **4.** Пра чалавека (звычайна невядомага, незнаёмага ці кепска бачнага). *У цемнаце прайшлі тры фігуры.* **5.** Целасклад, а таксама знешнія абрысы, формы чалавека. *Дзяўчына з прыгожай фігурай.* **6.** *перан.* Пра чалавека як носьбіта якіх-н. якасцей, уласцівасцей. *Буйная палітычная ф. Раней ён быў вялікай фігурай.* **7.** У шахматах: кароль, ферзь, ладдзя, слон і конь. **8.** У гульні ў карты: старшая ігральная карта — валет, дама, кароль, туз. **9.** Моўны зварот, стылістычны прыём, які надае мове асаблівую выразнасць. *Рытмічныя фігуры.* ‖ *памянш.* **фігу́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (да 3 і 5 знач.). ‖ *прым.* **фігу́рны**, -ая, -ае (да 5 знач.).

**ФІГУРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак.* **1.** Быць, знаходзіцца, прысутнічаць дзе-н., прымаючы ўдзел у чым-н. *Ф. на сходзе ў якасці запрошанага.* **2.** Называцца, упамінацца. *Гэта праблема не фігуравала на з'ездзе.* ‖ *наз.* **фігурава́нне**, -я, *н.*

**ФІГУРА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Алегарычны, вобразны. *Ф. зварот. Ф. сэнс.* ‖ *наз.* **фігура́льнасць**, -і, *ж.*

**ФІГУРА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Танцоўшчык у групавых балетных выступленнях (уст.). **2.** Тое, што і *статыст* (уст.). **3.** Той, хто праходзіць у якасці абвінавачанага, падазраванага або сведкі па судовай справе. *Ф. крымінальнай справы.* ‖ *ж.* **фігура́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ФІГУ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фігура. **2.** Які мае складаную форму, мае ўзор. *Фігурная рамка.* **3.** Які выконваецца з фігурамі (у 2 знач.) або прызначаны для такога выканання. *Фігурнае плаванне. Фігурнае катанне на каньках. Фігурныя канькі.* **4.** Які мае прыгожую фігуру (разм.). *Фігурная дзяўчына.* ‖ *наз.* **фігу́рнасць**, -і, *ж.*

**ФІГУРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца фігурным катаннем на каньках. ‖ *ж.* **фігуры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ФІГУ́РЫСТЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Складаны па форме. *Фігурыстая разьба.* **2.** Які мае прыгожую фігуру (у 5 знач.). *Ф. хлопец.*

**ФІДЭІ́ЗМ**, -у, *м.* Філасофскае вучэнне, якое сцвярджае прымат веры над розумам. ‖ *прым.* **фідэісты́чны**, -ая, -ае.

**ФІДЭІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік фідэізму. ‖ *ж.* **фідэі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **фідэі́сцкі**, -ая, -ае.

**ФІЁ́РД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вузкі, з крутымі і высокімі берагамі марскі заліў, які глыбока ўразаецца ў сушу. *Скандынаўскія фіёрды.*

**ФІ́ЖМЫ**, -аў (гіст.). Шырокі каркас, зроблены з кітовага вуса ў выглядзе абруча, які надзяваўся пад спадніцу і надаваў ёй пышнасць, а таксама спадніца з такім каркасам.

**ФІЗІЁЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па фізіялогіі (у 1 знач.).

**ФІ́ЗІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па фізіцы.

**ФІ́ЗІКА**, -і, *ДМ* -зіцы, *ж.* **1.** Навука аб уласцівасцях і будове матэрыі, аб формах яе руху і зменах. *Тэарэтычная ф.* **2.** Будова і ўласцівасці, формы руху і змянення якой-н. матэрыі. *Ф. цвёрдага цела. Ф. плазмы. Ф. ядра.* ‖ *прым.* **фізі́чны**, -ая, -ае.

**ФІЗІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фізіка. **2.** Які мае адносіны да чалавечага арганізма або да дзейнасці мышцаў, мускулаў; цялесны. *Фізічная праца. Фізічная прыгажосць. Перамагчы фізічна* (прысл.). **3.** Які адносіцца да палавых узаемаадносін. *Фізічная блізкасць.* **4.** Матэрыяльны. *Фізічнае старэнне машын.* ○ **Фізічная асоба** (спец.) — чалавек, індывід як носьбіт грамадзянскіх правоў і абавязкаў.

**ФІЗІЯЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука аб жыццядзейнасці арганізма, яго клетак, органаў, функцыянальных сістэм. *Ф. чалавека. Ф. раслін.* **2.** Сукупнасць жыццёвых працэсаў, што адбываюцца ў арганізме і яго частках. *Ф. вышэйшай нервовай дзейнасці. Ф. дыхання.* **3.** *перан.* Грубая пачуццёвасць, секс (разм.). ‖ *прым.* **фізіялагі́чны**, -ая, -ае.

**ФІЗІЯНО́МІЯ**, -і, *мн.* -і, -мій, *ж.* Твар чалавека. *Непрыемная ф. Пацешная ф. Ф. мясцовасці, вёскі* (перан.: знешні выгляд).

**ФІЗІЯТЭРАПЕ́ЎТ**, -а, *М* -е́ўце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па фізіятэрапіі. *Урач-ф.*

**ФІЗІЯТЭРАПІ́Я**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які вывучае ўздзеянне на арганізм розных фізічных фактараў (святла, цеплыні, вады, электрычнасці і пад.) і лячэнне хвароб фізічнымі прыроднымі сродкамі. ‖ *прым.* **фізіятэрапеўты́чны**, -ая, -ае. *Ф. кабінет.*

**ФІЗКУЛЬТУ́РА**, -ы, *ж.* Усебаковае ўмацаванне і ўдасканаленне чалавечага цела пры дапамозе фізічных практыкаванняў, а таксама адпаведная дысцыпліна. *Зала для фізкультуры. Адпусціць сродкі на фізкультуру.* ‖ *прым.* **фізкульту́рны**, -ая, -ае.

**ФІЗКУЛЬТУ́РНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, які займаецца фізічнай культурай, спортам. **2.** Выкладчык фізкультуры (разм.). ‖ *ж.* **фізкульту́рніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ФІКС**. У выразе: **ідэя фікс** (кніжн.) — неадчэпная, навязлівая думка, якая не дае спакою каму-н.

**ФІКСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *незак., што.* **1.** Адзначаць на паперы, замацоўваць што-н. у свядомасці, запамінаць. *Ф. усе дробязі. Ф. у памяці.* **2.** Канчаткова ўстанаўліваць, замацоўваць. *Ф. тэрмін нарады.* **3.** Сканцэнтроўваць, накіроўваць. *Ф. увагу.* **4.** Замацоўваць у пэўным становішчы. *Ф. хворую канечнасць.* **5.** Апрацоўваць матэрыял хімічным рэчывам для замацавання саставу, формы (спец.). ‖ *зак.* **зафіксава́ць**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны. ‖ *наз.* **фіксава́нне**, -я, *н.* і **фікса́цыя**, -і, *ж.*

**ФІКСА́Ж**, -у, *м.* (спец.). Хімічны раствор, у якім прамываюць пасля праяўлення фатаграфічную плёнку, пласцінку або адбітак з яе для замацавання відарыса. ‖ *прым.* **фікса́жны**, -ая, -ае. *Фіксажныя растворы.*

**ФІКСАТУА́Р**, -у, *м.* Памада для валасоў, для надання патрэбнай формы мужчынскай прычосцы.

**ФІКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які з'яўляецца фікцыяй. *Фіктыўныя дакументы.* ‖ *наз.* **фікты́ўнасць**, -і, *ж.*

**ФІ́КУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Трапічная вечназялёная расліна сямейства тутавых з авальнымі лістамі, якая вырошчваецца як дэкаратыўная. ‖ *прым.* **фі́кусны**, -ая, -ае.

**ФІ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* Наўмысна выдуманае становішча, з'ява і пад., якія не адпавядаюць рэчаіснасці і выкарыстоўваюцца як падробка.

**ФІЛАКАРТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца філакартыяй. ‖ *ж.* **філакарты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **філакарты́сцкі**, -ая, -ае.

**ФІЛАКАРТЫ́Я**, -і, *ж.* Калекцыянаванне паштовак. ‖ *прым.* **філакарты́чны**, -ая, -ае.

**ФІЛАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Сукупнасць навук, якія вывучаюць мову і літаратуру. *Славянская ф.* ‖ *прым.* **філалагі́чны**, -ая, -ае.

**ФІЛАНТРО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца філантропіяй. ‖ *ж.* **філантро́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак.

**ФІЛАНТРО́ПІЯ**, -і, *ж.* Дабрачынная дзейнасць, аказанне дапамогі бедным і тым, хто мае ў чым-н. патрэбу, іх апекаванне. ‖ *прым.* **філантрапі́чны**, -ая, -ае. *Філантрапічнае таварыства.*

**ФІЛАРМО́НІЯ**, -і, *мн.* -і, -ній, *ж.* **1.** Установа, якая займаецца арганізацыяй

канцэртаў і прапагандай музычнага мастацтва. *Артыст філармоніі.* **2.** Канцэртная зала такой установы. ‖ *прым.* **філарманічны**, -ая, -ае. *Ф. аркестр.*

**ФІЛАСО́ФІЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука аб найбольш агульных законах развіцця грамадства, прыроды і мыслення. **2.** *чаго.* Метадалагічныя прынцыпы, што ляжаць у аснове якой-н. навукі. *Ф. гісторыі.* **3.** Абстрактныя, пустыя разважанні (разм.). *Навошта ты развёў тут цэлую філасофію?* ‖ *прым.* **філасо́фскі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ФІЛАСО́ФСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* філасофія. **2.** Уласцівы філосафу (у 2 знач.); спакойны, разважлівы, удумлівы. *Філасофскія адносіны да справы.* **3.** *перан.* Глыбакадумны, сур'ёзны (разм.). *Рабіць з філасофскім выглядам.* **4.** У аснову якога пакладзена глыбокая ідэя (кніжн.). *Філасофская паэма.* ○ **Філасофскі камень** — згодна з уяўленнямі сярэдневяковых алхімікаў, фантастычнае цудадзейнае рэчыва, якое можа ператвараць металы ў золата, вылечваць усе хваробы, вяртаць маладосць і г.д.

**ФІЛАСО́ФСТВАВАЦЬ**, -ствую, -ствуеш, -ствуе; -ствуй; *незак.* **1.** Разважаць на філасофскія тэмы. **2.** *перан.* Мудраваць, разважаць на абстрактныя тэмы (разм.). ‖ *наз.* **філасо́фстваванне**, -я, *н.*

**ФІЛАТЭЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца калекцыянаваннем марак. ‖ *ж.* **філатэлі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **філатэлі́сцкі**, -ая, -ае.

**ФІЛАТЭЛІ́Я**, -і, *ж.* Калекцыянаванне і вывучэнне паштовых марак, паштовых знакаў. ‖ *прым.* **філатэлісты́чны**, -ая, -ае.

**ФІЛАФАНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца філафаніяй. ‖ *ж.* **філафані́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **філафані́сцкі**, -ая, -ае.

**ФІЛАФАНІ́Я**, -і, *ж.* Калекцыянаванне гуказапісаў на розных носьбітах. ‖ *прым.* **філафані́чны**, -ая, -ае.

**ФІЛЕ́**[1], *нескл.*, *н.* **1.** Мяса вышэйшага гатунку з сярэдняй часткі хрыбта тушы. **2.** Кусок мяса або рыбы, ачышчаны ад касцей, а таксама ежа з такога мяса. *Ф. скумбрыі.* ‖ *прым.* **філе́йны**, -ая, -ае.

**ФІЛЕ́**[2], *нескл.*, *н.* Вышыўка па сетцы з нітак або ажурная вязка. ‖ *прым.* **філе́йны**, -ая, -ае. *Філейная работа.*

**ФІЛЕ́Й**, -ю, *м.* Тое, што і *філе*[1] (у 1 знач.). ‖ *прым.* **філе́йны**, -ая, -ае. *Філейная выразка.*

**ФІЛЁНГА**, -і, *ДМ* -нзе, *мн.* -і, -лёнг *і* -аў *ж.* (спец.). **1.** Тонкая дошка або фанера, якая ўстаўляецца ў дзвярную або іншую раму. **2.** Вузкая каляровая палоска, якая аддзяляе афарбаваную панэль ад верхняй часткі сцяны. ‖ *прым.* **філянго́вы**, -ая, -ае.

**ФІЛЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Паліцэйскі агент, сышчык. ‖ *прым.* **філёрскі**, -ая, -ае.

**ФІЛІГРА́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да філіграні; зроблены з філіграні (у 1 знач.). *Філігранныя вырабы.* **2.** *перан.* Вельмі дакладны, які патрабуе асаблівай увагі да дробязей і дэталей, старанна і тонка выкананы. *Філіграннае майстэрства.* ‖ *прым.* **філігра́ннасць**, -і, *ж.*

**ФІЛІГРА́НЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Мастацкі ювелірны выраб з тонкага кручанага залатога, сярэбранага або іншага дроту, які мае выгляд карункаў. **2.** Вадзяны знак на паперы, а таксама папера з такім знакам.

**ФІ́ЛІН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Драпежная начная птушка атрада соў.

**ФІЛІ́ПІКА**, -і, *ДМ* -піцы, *ж.* (кніжн.). Гнеўная выкрывальная прамова, выступленне супраць каго-, чаго-н.

**ФІЛІ́СТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек з вузкім мяшчанскім кругаглядам і ханжаскімі паводзінамі; абывацель. ‖ *прым.* **філістарскі**, -ая, -ае.

**ФІЛІ́СТАРСТВА**, -а, *н.* Погляды і паводзіны філістара; абывацельская коснасць і ханжаства.

**ФІЛІЯ́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Аддзяленне буйнога прадпрыемства, якой-н. установы ці арганізацыі. *Ф. банка.* ‖ *прым.* **філія́льны**, -ая, -ае.

**ФІЛО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па філалогіі.

**ФІЛО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., пагард.). Лодар, гультай.

**ФІЛО́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.* (разм.). Лодарнічаць, нічога не рабіць. *Даволі ф., трэба працаваць.*

**ФІЛО́САФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па філасофіі, а таксама ўвогуле мысліцель, што займаецца распрацоўкай пытанняў светапогляду. **2.** *перан.* Чалавек, які ўдумліва, сур'ёзна ставіцца да жыцця, спакойна і разважліва адносіцца да жыццёвых няўдач і стрэсаў. **3.** Той, хто схільны да абстрактных разважанняў (разм.).

**ФІЛУМЕНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які займаецца філуменіяй. ‖ *ж.* **філумені́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **філумені́сцкі**, -ая, -ае.

**ФІЛУМЕНІ́Я**, -і, *ж.* Калекцыянаванне этыкетак з карабкоў ад запалак, карабкоў, саміх запалак і пад.

**ФІЛЬМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Твор мастацтва для дэманстрацыі, паказу ў кіно; кінакарціна. *Дакументальны ф. Прыгодніцкі ф.* **2.** Тонкая празрыстая плёнка з нанесеным на яе святлоадчувальным слоем, якая ўжываецца для фатаграфічнай і кінематаграфічнай здымкі (спец.). ‖ *прым.* **фі́льмавы**, -ая, -ае.

**ФІЛЬМА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. фільм, фільмавы, напр.: *фільмакопія, фільматэка, фільмафонд.*

**ФІЛЬМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак.* і *незак.*, *што* (спец.). Перанесці (пераносіць) адлюстраванне (пераважна друкаваны тэкст) на фільм (у 2 знач.). ‖ *наз.* **фільмава́нне**, -я, *н.*

**ФІЛЬМАСКО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Праектар для паказу дыяфільмаў.

**ФІЛЬМАТЭ́КА**, -і, *ДМ* -тэ́цы, *мн.* -і, -тэ́к, *ж.* Установа або аддзел установы, дзе збіраюць і захоўваюць фільмы; збор кінастужак. ‖ *прым.* **фільматэ́чны**, -ая, -ае.

**ФІЛЬТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыбор або рэчыва для ачысткі вадкасцей, газаў. **2.** Прыбор, які затрымлівае праходжанне некаторых прамянёў, гукаў, электрамагнітных хваль (спец.). *Акустычны ф.* ‖ *прым.* **фі́льтравы**, -ая, -ае.

**ФІЛЬТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак.*, *што.* Прапускаць што-н. праз фільтр для ачысткі. *Ф. вадкасць.* ‖ *зак.* **адфільтрава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны *і* **прафільтрава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. ‖ *наз.* **фільтрава́нне**, -я, *н.*, **фільтра́цыя**, -і, *ж. і* **фільтро́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **фільтрава́льны**, -ая, -ае, **фільтрацы́йны**, -ая, -ае *і* **фільтро́вачны**, -ая, -ае. *Фільтравальная папера. Фільтрацыйная ўстаноўка. Фільтровачныя матэрыялы.*

**ФІЛЯНГО́ВЫ** *гл.* філёнга.

**ФІМІЯ́М**, -у, *м.* Духмянае рэчыва для спальвання ў час рэлігійных абрадаў, а таксама дым, які ўзнікае пры згаранні гэтага рэчыва. ◊ **Курыць фіміям** *каму* (кніжн., іран.) — лісліва ўхваляць каго-н.

**ФІНА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Заключная частка, канец, завяршэнне чаго-н. *Ф. апавядання. Ф. сімфоніі.* **2.** Заключная частка спаборніцтваў, у якой выяўляюцца пераможцы. *Футбольная каманда выйшла ў ф.* ‖ *прым.* **фіна́льны**, -ая, -ае.

**ФІНАНСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны, *зак.* і *незак.*, *каго-што.* Забяспечыць (забяспечваць) грашовымі сродкамі, фінансамі каго-, што-н. *Ф. завод. Ф. будаўніцтва.* ‖ *наз.* **фінансава́нне**, -я, *н.*

**ФІНАНСІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па вядзенні фінансавых аперацый. **2.** Уладальнік капіталаў, які вядзе буйныя грашовыя аперацыі. ‖ *ж.* **фінансі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **фінансі́сцкі**, -ая, -ае.

**ФІНА́НСЫ**, -аў. **1.** Грашовыя сродкі як элемент народнагаспадарчага абароту. **2.** Грошы, грашовыя справы (разм.). *З фінансамі цяжка.* ‖ *прым.* **фіна́нсавы**, -ая, -ае.

**ФІ́НА-ЎГО́РСКІ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да групы роднасных моў, да якой належаць фінская, венгерская, эстонская мовы і інш.

**ФІ́НА-ЎГРАЗНА́ВЕЦ**, -на́ўца, *мн.* -на́ўцы, -на́ўцаў, *м.* Спецыяліст па фіна-ўгразнаўстве.

**ФІ́НА-ЎГРАЗНА́ЎСТВА**, -а, *н.* Сукупнасць навук, якія вывучаюць мовы і культуры фіна-ўгорскіх народаў. ‖ *прым.* **фі́на-ўгразна́ўчы**, -ая, -ае.

**ФІ́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Ядомы плод фінікавай пальмы. ‖ *прым.* **фі́нікавы**, -ая, -ае. *Фінікавая костачка.*

**ФІНІ́ФЦЬ**, -і, *ж.* Эмаль для пакрыцця металічных вырабаў і нанясення ўзору

на фарфор. ‖ *прым.* **фініфцевы**, -ая, -ае. *Ф. пярсцёнак.*

**ФІ́НІШ**, -у, *м.* **1.** Заключная частка спартыўнага спаборніцтва на хуткасць. **2.** Канечны пункт, канец такога спаборніцтва. **3.** У спорце: некаторая адлегласць на дыстанцыі перад канечным пунктам. *Прайсці ф.* ‖ *прым.* **фі́нішны**, -ая, -ае. *Фінішная стужка.*

**ФІНІШАВА́ЦЬ**, -шу́ю, -шу́еш, -шу́е; -шу́й, *зак.* і *незак.* **1.** Прыйсці (прыходзіць) да фінішу (у 2 знач.). **2.** Прайсці (праходзіць) у фінішы (у 3 знач.). ‖ *наз.* **фінішава́нне**, -я, *н.*

**ФІ́НКА**[1], -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Нож з тоўстым кароткім лязом, так званы фінскі нож (разм.). **2.** Круглая шапка з футравым адкладным аколышкам. **3.** Парода коней, распаўсюджаная ў Фінляндыі.

**ФІ́НКА**[2] *гл.* фіны.

**ФІНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* У спорце: падманны рух, фальшывы выпад.

**ФІНЦІКЛЮ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). **1.** Цацка, забаўка, таннае ўпрыгожанне. *Уставіць пакой усякімі фінціклюшкамі.* **2.** звычайна *мн.* Несур'ёзныя, пустыя ўчынкі, словы. *Усё гэта далёкія ад справы фінціклюшкі.* **3.** Пра пустую, легкадумную жанчыну, якая думае толькі пра шыкоўнае ўбранне.

**ФІНЦІ́ЦЬ**, -нчу́, -нці́ш, -нці́ць; -нці́м, -нціце́, -нця́ць; *незак.* (разм.). Хітрыць, выкручвацца, весці сябе ненатуральна.

**ФІ́НЫ**, -аў, *адз.* фін, -а, *м.* Народ фіна-ўгорскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Фінляндыі. ‖ *ж.* **фі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **фі́нскі**, -ая, -ае.

**ФІРА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Заслона з тонкага матэрыялу або з карунак на вокны, дзверы і пад.

**ФІ́РМА**, -ы, *мн.* -ы, фірм *і* -аў, *ж.* **1.** Гандлёвае ці прамысловае прадпрыемства, вытворчае аб'яднанне. *Замежная ф.* **2.** *перан.* Знешні выгляд, прыкрыцце чаго-н. *Пад фірмай добразычлівасці.* ‖ *прым.* **фі́рменны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ФІ́РМЕННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фірма. **2.** Які ўласцівы той ці іншай фірме або належыць ёй. *Ф. магазін.*

**ФІРН**, -у, *м.* (спец.). Буйназярністы снег, які ўтвараецца ў гарах у выніку частага вымярзання і адтайвання. ‖ *прым.* **фі́рнавы**, -ая, -ае.

**ФІСГАРМО́НІЯ**, -і, *мн.* -і, -ній, *ж.* Клавішны духавы музычны інструмент з мяхамі.

**ФІСКА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У Расіі 18 ст.: чыноўнік, які назіраў за законнасцю ў галіне фінансавых і судовых дзеянняў урада, устаноў і асоб. **2.** *перан.* Даносчык, паклёпнік. ‖ *ж.* **фіска́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак (да 2 знач.).

**ФІСКА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак.* (разм.). Быць фіскалам (у 2 знач.), паклёпнічаць на каго-н. ‖ *наз.* **фіска́льства**, -а, *н.*

**ФІСТА́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Паўднёвае пладовае дрэва сямейства сумахавых з перыстымі лістамі, а таксама ядомы плод гэтага дрэва. ‖ *прым.* **фіста́шкавы**, -ая, -ае. *Ф. колер. Ф. гай.*

**ФІ́СТУЛА**, -ы, *мн.* -ы, -тул, *ж.* У медыцыне: свішч або штучны канал ад хворага ачага на паверхню скуры. ‖ *прым.* **фі́стульны**, -ая, -ае.

**ФІСТУЛА́**, -ы́, *мн.* -ы́, -ту́л, *ж.* **1.** Старая назва аднаствольных, а пазней шматствольных флейт. **2.** Тое, што і *фальцэт. Спяваць фістулой.*

**ФІТА́**, -ы́, *ДМ* фіце́, *ж.* Перадапошняя літара старога рускага алфавіта, якая была запазычана з грэчаскай мовы для перадачы гука «ф» у словах грэчаскага паходжання.

**ФІ́ТНЕС**, -у, *м.* Аздараўленчая методыка, якая дазваляе дасягнуць добрага фізічнага стану шляхам спалучэння фізічных практыкаванняў са збалансаваным харчаваннем. *Займацца фітнесам. Інструктар па фітнесе.*

**ФІ́ФА**, -ы, *мн.* -ы, фіф, *ж.* (разм., пагард.). Пустая, легкадумная дзяўчына або жанчына, якая думае толькі пра сваю знешнасць. ‖ *памянш.* **фіфачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ФІ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Фігурка ў настольных гульнях для перасоўвання па клетках. **2.** Кубік, кружок і пад. ў настольных гульнях для падліку ачкоў, бітак і пад. ‖ *прым.* **фі́шкавы**, -ая, -ае.

**ФІЯЛЕ́ТАВЫ**, -ая, -ае. Сіні з чырванаватым адценнем, колеру фіялкі. *Фіялетавае чарніла.*

**ФІЯ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Травяністая расліна сямейства фіялкавых з фіялетавымі або жоўтымі, белымі ці ружнакаляровымі пахучымі кветкамі. ‖ *прым.* **фія́лкавы**, -ая, -ае. *Ф. пах. Сямейства фіялкавых* (наз.). ○ **Фіялкавы корань** — карнявішча некаторых відаў касачоў, у склад якіх уваходзіць эфірнае масла.

**ФІЯ́ЛКАВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фіялка. **2.** Светла-фіялетавы, колеру фіялкі.

**ФІЯ́СКА**, *нескл., н.* Няўдача, поўны правал. *Пацярпець ф.*

**ФЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *сцяг.* ‖ *памянш.* **флажо́к**, -а, *мн.* -і, -оў, *м.* ‖ *прым.* **фла́гавы**, -ая, -ае.

**ФЛАГ-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да флагмана (у 1 знач.), напр.: *флаг-ад'ютант, флаг-афіцэр, флаг-капітан, флаг-лейтэнант.*

**ФЛА́ГМАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Камандуючы флотам або буйным злучэннем ваенных караблёў. **2.** Вядучы ваенны карабель (марскі або паветраны), на якім знаходзіцца камандуючы эскадрай. **3.** *перан.* Пра што-н. самае буйное, самае галоўнае сярод падобнага. *Ф. культуры.* ‖ *прым.* **фла́гманскі**, -ая, -ае.

**ФЛАГШТО́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Шост для пад'ёму сцяга.

**ФЛАКО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікая бутэлечка са шчыльным коркам (звычайна для духоў, адэкалону). ‖ *памянш.* **флако́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ФЛАМА́СТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прылада для пісьма, малявання, у якой пішучым элементам з'яўляецца порысты стрыжань, насычаны фарбавальнікам.

**ФЛАМІ́НГА**, *нескл., м.* Паўднёвая вадзяная птушка сямейства фламінгавых з бледна-ружовым апярэннем, доўгай шыяй і доўгімі нагамі.

**ФЛАНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Левы ці правы край шарэнгі, фронту, размяшчэння войск і пад. *Ударыць з фланга.* ‖ *прым.* **флангóвы**, -ая, -ае. *Ф. удар. Фланговая пазіцыя. Ф. марш* (рух уздоўж фронту праціўніка, які здзяйсняецца з мэтай ахапіць ці абысці яго фланг).

**ФЛАНЕ́ЛЬ**, -і, *Т* -ллю, *ж.* Мяккая баваўняная або шарсцяная тканіна палатнянага перапляцення з двухбаковым начосам. ‖ *прым.* **фланэ́левы**, -ая, -ае *і* **флане́льны**, -ая, -ае.

**ФЛА́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (спец.). Злучальная частка трубаправодаў, валоў і пад. ў выглядзе дыска з адтулінамі для балтоў. ‖ *прым.* **фла́нцавы**, -ая, -ае.

**ФЛАНЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Той, хто фланіруе, пазбягае работы. ‖ *прым.* **фланёрскі**, -ая, -ае.

**ФЛАНІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* (разм.). Прагульвацца, хадзіць без мэты, бяздзейнічаць.

**ФЛАНКІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.* (спец.). **1.** Быць на флангу, абараніць (абараняць), прыкрываючы з флангаў. **2.** Абстраляць (абстрэльваць) з флангаў прадольным агнём. ‖ *наз.* **фланкі́раванне**, -я, *н.*

**ФЛАРЫ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Старадаўняя заходнееўрапейская залатая або сярэбраная манета (першапачаткова ў Фларэнцыі). **2.** У Нідэрландах: тое, што і *гульдэн.*

**ФЛАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Вучоны, які вывучае флору. **2.** Мастак, які стварае свае творы з раслін, кветак і пад.

**ФЛАРЫСТЫ́ЧНЫ** *гл.* флора.

**ФЛАТАВО́ДЗЕЦ**, -дца, *мн.* -дцы, -дцаў, *м.* Марскі военачальнік, камандуючы флотам. ‖ *прым.* **флатаво́дчы**, -ая, -ае.

**ФЛАТЫ́ЛІЯ**, -і, *мн.* -і, -лій, *ж.* **1.** Злучэнне ваенных суднаў, прызначаных для дзеянняў на рэках, азёрах і ў прыбярэжнай зоне мора. **2.** Атрад караблёў спецыяльнага прызначэння. *Кітабойная ф.*

**ФЛЕ́ГМА**, -ы, *ж.* **1.** Тое, што і *флегматызм.* **2.** Тое, што і *флегматык* (разм.).

**ФЛЕГМАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* Незвычайны спакой, амаль поўная абыякавасць да ўсяго, вяласць.

**ФЛЕГМА́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек флегматычнага тэмпераменту.

**ФЛЕГМАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Спакойны, ураўнаважаны, павольны, які слаба праяўляе эмоцыі. *Ф. тэмперамент.* **2.** Вялы, абыякавы, раўнадушны. *Ф. голас.* || *наз.* **флегматы́чнасць**, -і, *ж.*

**ФЛЕГМО́НА**, -ы, *ж.* (спец.). Гнойнае запаленне падскурнай клятчаткі. || *прым.* **флегмано́зны**, -ая, -ае.

**ФЛЕ́ЙТА**, -ы, *ДМ* фле́йце, *мн.* -ы, флейт, *ж.* Духавы музычны інструмент высокага рэгістра ў выглядзе драўлянай або металічнай трубкі з адтулінамі і клапанамі. || *прым.* **фле́йтавы**, -ая, -ае.

**ФЛЕЙТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на флейце. || *ж.* **флейты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ФЛЕ́КСІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* У граматыцы: тое, што і *канчатак.* || *прым.* **флекты́ўны**, -ая, -ае. *Флектыўны націск.* ○ **Флектыўныя мовы** — мовы, якія ўтвараюць формы словазмянення пры дапамозе флексій.

**ФЛЁКС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дэкаратыўная садовая расліна сямейства сінюхавых з пахучымі кветкамі, сабранымі ў буйное суквецце на вяршыні сцябла. || *прым.* **флёксавы**, -ая, -ае.

**ФЛЁР**, -у, *м.* **1.** Тонкая празрыстая пераважна шаўковая тканіна. **2.** *перан.* Напаўпразрыстае покрыва, заслона, смуга. || *прым.* **флёравы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ФЛЁРДАРА́НЖ**, -у, *м.* Прыналежнасць вясельнага ўбору нявесты — белыя кветкі, падобныя на кветкі памяранцавага дрэва. || *прым.* **флёрдара́нжавы**, -ая, -ае.

**ФЛІБУСЦЬЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Марскі разбойнік, пірат, кантрабандыст. || *прым.* **флібусцье́рскі**, -ая, -ае.

**ФЛІ́ГЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Жылая прыбудова пры галоўным будынку, а таксама невялікі дом на двары вялікага будынка. || *прым.* **флі́гельны**, -ая, -ае.

**ФЛІ́ГЕЛЬ-АД'ЮТА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* У царскай Расіі: афіцэр у свіце цара, які выконваў абавязкі ад'ютанта, або афіцэр для даручэнняў пры камандуючым арміяй. || *прым.* **флі́гель-ад'юта́нцкі**, -ая, -ае.

**ФЛІКЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Святлоадбівальны элемент, які выкарыстоўваецца для абазначэння пешаходаў у цёмны час сутак. *Насіць ф.*

**ФЛІРТ**, -у, *М* -рце, *м.* Лёгкае заляцанне, какецтва.

**ФЛІРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак., з кім* і *без дап.* Займацца фліртам.

**ФЛО́РА**, -ы, *ж.* Сукупнасць усіх відаў раслін якой-н. мясцовасці ці геалагічнага перыяду. || *прым.* **фларысты́чны**, -ая, -ае.

**ФЛОТ**, -у, *М* фло́це, *мн.* фло́ты, -аў *і* флаты́, -о́ў, *м.* **1.** Сукупнасць усіх ваенных ці гандлёвых суднаў краіны або асобнага мора, рачнога басейна. *Рачны ф. Чарнаморскі ф.* **2.** Буйное злучэнне ваенна-марскіх суднаў. ○ **Паветраны флот** — сукупнасць ваенных або грамадзянскіх лятальных апаратаў; авіяцыя. || *прым.* **фло́цкі**, -ая, -ае. *Ф. экіпаж. Сышлі на бераг флоцкія* (наз.).

**ФЛЮАРАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Метад рэнтгеналагічнага даследавання: фатаграфаванне адлюстравання ўнутраных органаў чалавечага цела. || *прым.* **флюараграфі́чны**, -ая, -ае.

**ФЛЮГА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Рухомая частка флюгера (у 1 знач.). **2.** Флажок або іншы спецыяльны знак на шлюпцы, парусах, буйках і пад., які ўказвае на прыналежнасць да пэўнага судна. **3.** Рухомая жалезная надстаўная труба, якая ўстанаўліваецца над дымавой або выцяжной трубой і аблягчае выхад дыму ў ветранае надвор'е. || *прым.* **флюга́рачны**, -ая, -ае.

**ФЛЮ́ГЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыбор для вымярэння напрамку і хуткасці ветру. **2.** Флажок, які прымацоўваўся да пікі кавалерыста (гіст.). **3.** *перан.* Пра таго, хто часта мяняе свае погляды, перакананні (неадабр.). || *прым.* **флю́герны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ФЛЮІ́ДЫ**, -аў, *адз.* флюі́д, -у, *м.* (кніжн.). Знешне неадчувальныя плыні, псіхічныя токі, якія зыходзяць ад каго-, чаго-н. *Ад гэтага чалавека ідуць ф. дабра.*

**ФЛЮС**[1], -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гнойнае запаленне дзясны або надкосніцы. || *прым.* **флю́сны**, -ая, -ае.

**ФЛЮС**[2], -у, *мн.* флюсы́, -о́ў, *м.* (спец.). Матэрыял, які дадаюць да руды пры плаўцы, каб лягчэй аддзяліць метал ад пустой пароды. || *прым.* **флю́савы**, -ая, -ае *і* **флю́сны**, -ая, -ае.

**ФЛЯНС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Адно каліва расады. *Флянсы капусты.* **2.** Бакавы парастак, пасынак. || *прым.* **фля́нсавы**, -ая, -ае.

**ФЛЯНСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; -сава́ны; *незак., што.* **1.** Садзіць, рассаджваць флянсы. *Ф. лес.* **2.** Абломваць непатрэбныя флянсы (у 2 знач.). *Ф. памідоры.*

**ФОКСТЭР'Е́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі сабака з пароды тэр'ераў, з якім палююць на лісіц, барсукоў і іншых невялікіх звяроў, што жывуць у норах.

**ФО́КУС**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пункт перасячэння адбітых або праломленых прамянёў, якія падаюць на аптычную сістэму паралельным пучком. **2.** Пункт, у якім прадмет, што фатаграфуецца або разглядаецца пры дапамозе аптычнага прыбора, мае найлепшую рэзкасць, выразнасць. *Навесці лінзы на ф.* **3.** Ачаг запаленчага працэсу ў арганізме (спец.). *Ф. у лёгкіх.* **4.** *перан.* Цэнтр якіх-н. з'яў, уласцівасцей, падзей. || *прым.* **фака́льны**, -ая, -ае *і* **фо́кусны**, -ая, -ае.

**ФО́КУС**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Лоўкі прыём, заснаваны на падмане зроку, увагі пры дапамозе хуткага і ўмелага руху, спрыту. *Дзіўны ф.* **2.** *перан.* Выдумка, хітрасць. **3.** звычайна *мн., перан.* Капрызы, прычуды (разм.). *Вечныя фокусы з ядой.* || *прым.* **фо́кусны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Фокуснае мастацтва.*

**ФО́КУСНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Артыст, які паказвае фокусы[2] (у 1 знач.). **2.** *перан.* Чалавек, здольны да хітрыкаў, махлярства. || *ж.* **фо́кусніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. || *прым.* **фо́кусніцкі**, -ая, -ае.

**ФО́КУСНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Рабіць, паказваць фокусы[2] (у 1 знач.). **2.** Займацца якімі-н. хітрасцямі, выдумкамі. || *наз.* **фо́куснічанне**, -я, *н.*

**ФО́ЛЬГА**, -і, *ДМ* фо́льзе, *ж.* Вельмі тонкі металічны ліст, ужываецца ў вытворчасці люстэркаў, для ўпакоўкі харчовых прадуктаў і пад. || *прым.* **фо́льгавы**, -ая, -ае.

**ФОН**[1], -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Асноўны колер, тон, на якім пішацца карціна ці малюецца што-н. *Чырвоны ф.* **2.** Задні план карціны, а таксама ўвогуле задні план чаго-н., тое, на чым што-н. бачыцца, вылучаецца. *Караблі на фоне вячэрняга неба.* **3.** *перан.* Агульныя ўмовы, абставіны, у якіх што-н. адбываецца. *На фоне цяперашніх міжнародных падзей.* || *прым.* **фо́навы**, -ая, -ае.

**ФОН**[2], -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Адзінка вымярэння ступені гучнасці, гуку.

**ФОНА...** (а таксама **фана...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да гуку, голасу, напр.: *фонаграфаванне, фонаэлектракардыяграма, фонамарфалогія, фонахрэстаматыя.*

**ФОНД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Грашовыя сродкі або матэрыяльныя каштоўнасці дзяржавы, прадпрыемства і пад. *Ф. заработнай платы. Залаты ф.* (таксама перан.: лепшая частка чаго-н.). **2.** Рэсурсы, запасы чаго-н. *Насенны ф. Жыллёвы ф.* **3.** толькі *мн.* Каштоўныя паперы, якія даюць прыбытак. *Банкаўскія фонды.* || *прым.* **фо́ндавы**, -ая, -ае.

**ФО́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* (спец.). Гукавая арганізацыя паэтычнай мовы. *Ф. верша.* || *прым.* **фані́чны**, -ая, -ае.

**ФО́РА**, -ы, *ж.* У выразе: **даваць (даць) фору** *каму* — 1) у спорце: загадзя даць каму-н. перавагу; 2) намнога апярэджваць, значна пераўзыходзіць.

**ФО́РВАРД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* У футболе, хакеі: ігрок нападзення, нападаючы.

**ФО́РМА**, -ы, *мн.* -ы, форм *і* -аў, *ж.* **1.** Знешні контур, вонкавы выгляд прадмета. *У форме шара. Прадмет выпуклай формы.* **2.** Від, тып, спосаб арганізацыі чаго-н., структура чаго-н., абумоўленыя пэўным зместам. *Адзінства формы і зместу.* **3.** Знешні выгляд, знешні бок чаго-н. як нешта, што пярэчыць унутранаму зместу, рэчаіснасці. *Вытрымаць форму. Рабіць дзеля формы.* **4.** Устаноўлены ўзор, парадак чаго-н. *Запоўніць ведамасць па форме.* **5.** Прыстасаванне для надання чаму-н. тых або іншых контураў, пэўнага знешняга выгляду. *Ф. для капелюшоў.* **6.** Аднолькавае па крої, колеры і пад. адзенне (для ваеннаслужачых, вучняў і пад.). *Пераход ваен-*

*ных на летнюю форму. Школьная ф.* **7.** Сукупнасць прыёмаў і выяўленчых сродкаў мастацкага твора. *Апавядальная ф. верша.* **8.** У моваznaўстве: сродак выражэння граматычных катэгорый, узаемаадносін слоў у сказе. *Кароткая ф. прыметнікаў. Формы множнага ліку назоўнікаў.* **9.** звычайна *мн.* Разнавіднасць жывёльнага або расліннага арганізма. *Прымітыўныя формы жывёл.* ◊ **Па ўсёй форме** (разм.) — як належыць, як трэба. **У форме** — у такім стане, калі праяўляюцца ўсе сілы, здольнасці, уменне; сабраны, падцягнуты. *Шахматыст у бліскучай форме.* ‖ *прым.* **фарма́льны**, -ая, -ае (да 2, 3, 4, 7 і 8 знач.), **фармавы́**, -а́я, -о́е (да 5 знач.; спец.) *і* **фо́рменны**, -ая, -ае (да 4 і 6 знач.). *Фармальны аналіз. Форменны бланк. Форменны касцюм.*

**ФОРМА...** (а таксама **фарма...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да формы (у 1, 5 і 8 знач.), напр.: *формаўкладчык, формазмяняльнасць, формаўтварэнне.*

**ФО́РМЕНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* (разм.). Форменнае верхняе адзенне ў матросаў, навучэнцаў тэхнічных вучылішчаў і пад.

**ФО́РМЕННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* форма. **2.** Сапраўдны (разм.). *Форменнае злачынства.*

**ФО́РМУЛА**, -ы, *мн.* -ы, -мул, *ж.* **1.** Кароткае і дакладнае славеснае выказванне, азначэнне чаго-н. *Выкласці ў сціслых формулах.* **2.** Умоўнае абазначэнне адносін якіх-н. велічынь, элементаў і пад. *Арыфметычная ф. Ф. вады.*

**ФОРС**, -у, *м.* (разм.). Франтаватасць, самахвальства, важнічанне. *Прайсціся з форсам.*

**ФОРТ**, -а, *М* -рце, *мн.* фарты́ *і (з ліч. 2, 3, 4)* фо́рты, -о́ў, *м.* Асобнае ўмацаванне ў сістэме крапасных збудаванняў. ‖ *прым.* **фо́ртавы**, -ая, -ае.

**ФО́РТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Шкляныя дзверцы ў акне для праветрывання. **2.** Невялікія дзверы ў варотах, агароджы; веснічкі. **3.** Вольны прамежак часу ў раскладзе заняткаў педагога (разм.). *Расклад без фортак.* ‖ *памянш.* **фо́ртачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **фо́ртачны**, -ая, -ае.

**ФО́РТАЛЬ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* (разм.). Лоўкая выхадка, нечаканы выбрык. *Выкінуць ф.*

**ФО́РТЭ**, *прысл.* (спец.). Моцна, гучна, на поўную сілу музычнага гуку; *проціл.* піяна. *Іграць ф.*

**ФО́РУМ**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Плошча ў Старажытным Рыме, дзе адбываліся сходы, суды і пад. **2.** -у. Масавы сход, з'езд. *Ф. вучоных.*

**ФО́РЫНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грашовая адзінка ў Венгрыі.

**ФО́СФАР**, -у, *м.* Хімічны элемент, які ўтрымліваецца ў некаторых мінералах, у раслінных і жывёльных тканках. *Белы ф.* ‖ *прым.* **фо́сфарны**, -ая, -ае.

**ФО́ТА**, *нескл., н.* (разм.). Тое, што і *фатаграфія* (у 2 знач.).

**ФОТА...** Першая частка складаных слоў са знач.: 1) фатаграфічны, напр.: *фотаапарат, фотадзённік, фотакарэспандэнт, фоталабараторыя, фотамакет, фотамантаж, фотапапера, фотапласцінка, фотачасопіс;* 2) звязаны са святлом, напр.: *фотаметрыя, фотасінтэз, фотасфера, фотахімія.*

**ФОТААМА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца фатаграфіяй (у 1 знач.) як аматар. ‖ *прым.* **фотаама́тарскі**, -ая, -ае.

**ФОТАГЕНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае выразныя рысы, што добра перадаюцца на фотаздымку ці на экране. *Ф. выгляд.* ‖ *наз.* **фотагені́чнасць**, -і, *ж.*

**ФОТАКА́РТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Фатаграфічная картка, здымак.

**ФОТАПАЛЯВА́ННЕ**, -я, *н.* Фатаграфаванне жывёл пры дапамозе фотаружжа.

**ФОТАРУЖЖО́**, -а́, *мн.* фотару́жжы, -аў, *н.* Фотаапарат з тэлеаб'ектывам і ўпорам для пляча, які нагадвае ружжо.

**ФОТАРЭЛЕ́**, *нескл., н.* Рэле, якое дзейнічае пры дапамозе фотаэлемента.

**ФОТАРЭПАРТА́Ж**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рэпартаж сродкамі фатаграфіі.

**ФОТАРЭПАРЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Фатограф, які займаецца фотарэпартажам. ‖ *прым.* **фотарэпарцёрскі**, -ая, -ае.

**ФОТАСІ́НТЭЗ**, -у, *м.* (спец.). У раслін і некаторых мікраарганізмаў: біялагічны працэсператварэння прамянёвай энергіі Сонца ў арганічную (хімічную) энергію. ‖ *прым.* **фотасінтэты́чны**, -ая, -ае.

**ФОТАТЫ́ПІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Спосаб плоскага друку са шкляной або металічнай пласціны, а таксама адбітак, атрыманы такім спосабам. ‖ *прым.* **фотатыпі́чны**, -ая, -ае. *Фотатыпічнае выданне кнігі.*

**ФОТАТЭЛЕГРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́м, *ж.* Тэлеграма, перададзеная пры дапамозе фотатэлеграфа.

**ФОТАТЭЛЕГРА́Ф**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тэлеграфны апарат для перадачы адлюстраванняў (рукапісаў, малюнкаў, фотаздымкаў) на фатаграфічную паперу, а таксама перадача адлюстраванняў сродкамі такога апарата. ‖ *прым.* **фотатэлегра́фны**, -ая, -ае.

**ФОТАХРО́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* Хроніка падзей, адлюстраваная ў фатаграфіях. ‖ *прым.* **фотахраніка́льны**, -ая, -ае.

**ФОТАЭЛЕМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыбор, у якім пад уздзеяннем святла ўзнікае электрарухаючая сіла.

**ФРАГМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Урывак якога-н. тэксту, мастацкага, музычнага твора. *Ф. з оперы «Дзяўчына з Палесся».* **2.** Абломак, рэшткі якога-н. твора мастацтва. ‖ *прым.* **фрагмента́рны**, -ая, -ае.

**ФРАГМЕНТА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фрагмент. **2.** *перан.* Няпоўны, урывачны. *Ф. даклад.* ‖ *наз.* **фрагмента́рнасць**, -і, *ж.*

**ФРА́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, фраз, *ж.* **1.** Закончанае выказванне. *Кароткая ф.* **2.** Напышлівы выраз, якім прыкрываецца беднасць, ілжывасць зместу. *Не даклад, а пустыя фразы.* **3.** У музыцы: рад гукаў або акордаў, якія ўтвараюць невялікую, адносна закончаную частку музычнай тэмы, мелодыі. ‖ *прым.* **фра́завы**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.). *Ф. акцэнт.*

**ФРАЗЕАЛАГІ́ЗМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Устойлівае спалучэнне слоў, якое характарызуецца пастаянным лексічным складам, устойлівай граматычнай будовай і вядомым для носьбітаў мовы значэннем, напр.: *даць дуба, застацца з носам.*

**ФРАЗЕАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Раздзел моваznaўства, які вывучае фразеалагізмы. **2.** Сукупнасць фразеалагізмаў пэўнай мовы, асобнага твора, пісьменніка і пад. *Ф. твораў Я. Коласа.* **3.** Прыгожыя, напышлівыя выразы, фразы. ‖ *прым.* **фразеалагі́чны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). *Ф. слоўнік.*

**ФРАЗЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які любіць гаварыць фразы (у 2 знач.), напышлівыя, пустыя прамовы. ‖ *ж.* **фразёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **фразёрскі**, -ая, -ае.

**ФРАЗЁРСТВА**, -а, *н.* Пустаслоўе, любоў, схільнасць да фразы (у 2 знач.).

**ФРАЗЁРСТВАВАЦЬ**, -ствую, -ствуеш, -ствуе; -ствуй; *незак.* Займацца фразёрствам.

**ФРАЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., што* (спец.). Выдзяляць у вымаўленні або пры выкананні выразныя месцы фраз. ‖ *наз.* **фразіро́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.*

**ФРАК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Парадны мужчынскі сурдут з выразанымі спераду поламі і доўгімі вузкімі фалдамі ззаду. ‖ *прым.* **фра́чны**, -ая, -ае.

**ФРА́КЦЫЯ**[1], -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Група членаў якой-н. партыі ў парламенце, грамадскай арганізацыі або адасобленая групоўка ўнутры арганізацыі, партыі. ‖ *прым.* **фракцы́йны**, -ая; -ае; *наз.* **фракцы́йнасць**, -і, *ж.*

**ФРА́КЦЫЯ**[2], -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (спец.). Частка вадкай сумесі, сыпучага або кускавога матэрыялу, аддзеленая па якой-н. адзнацы. ‖ *прым.* **фракцы́йны**, -ая, -ае.

**ФРАМУ́ГА**, -і, *ДМ* -му́зе, *мн.* -і, -му́г, *ж.* Верхняя адкідная створка акна ці дзвярэй. ‖ *прым.* **фраму́жны**, -ая, -ае. *Фрамужнае шкло.*

**ФРАНДЗЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Удзельнік фронды (у 1 знач.; гіст.). **2.** *перан.* Той, хто франдзіруе, выказвае незадаволенасць чым-н. *Ён вядомы ф.* ‖ *прым.* **франдзёрскі**, -ая, -ае.

**ФРАНДЗЁРСТВА**, -а, *н.* (кніжн.). Незадаволенасць кім-, чым-н., якая выяўляецца ў імкненні супярэчыць каму-, чаму-н., крытыкаваць каго-, што-н.

**ФРАНДЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак.* (кніжн.). Займацца франдзёрствам; выказваць незадаволенасць кім-, чым-н. з-за жадання супярэчыць. ‖ *наз.* **франдзі́раванне**, -я, *н.*

**ФРАНК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Грашовая адзінка Францыі, Бельгіі, Швейцарыі і некаторых іншых краін да 2002 г., роўная 100 сантымам. ‖ *прым.* **фра́нкавы**, -ая, -ае.

**ФРАНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які любіць модна апранацца; моднік. ‖ *ж.* **франці́ха**, -і, *ДМ* -ці́се, *мн.* -і, -ці́х (разм.). ‖ *прым.* **франтаўскі́**, -а́я, -о́е.

**ФРАНТАВА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Схільны да франтаўства; які любіць франціць. *Ф. хлопец.* **2.** Пра адзенне, прычоску і пад.: моднага крою, фасону. *Ф. гарнітур.* ‖ *наз.* **франтава́тасць**, -і, *ж.*

**ФРАНТАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Той, хто знаходзіўся або знаходзіцца ў час вайны на фронце. ‖ *ж.* **франтаві́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (разм.).

**ФРАНТАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* фронт. **2.** Прызначаны для патрэб фронту. *Ф. закон. Франтавая аперацыя.*

**ФРАНТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Накіраваны ў бок фронту; лабавы. *Франтальная атака. Ф. ўдар.* **2.** *перан.* Такі, які распаўсюджваецца на ўсіх, адбываецца адначасова; агульны. *Франтальная праверка дакументаў.*

**ФРАНТАЎСКІ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* франт. **2.** Які мае модны выгляд, крой (пра адзенне, абутак). *Ф. касцюм.*

**ФРАНТАЎСТВО́**, -а́, *н.* Залішняя ўвага да сваёй знешнасці, моднага адзення і пад.

**ФРАНТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Трохвугольная або паўкруглая верхняя частка фасада будынка, абмежаваная схіламі даху і карнізам. ‖ *прым.* **франто́нны**, -ая, -ае.

**ФРАНТЫСПІ́С**, -а, *М* -се, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У архітэктуры: галоўны фасад будынка. **2.** Малюнак або партрэт, які змяшчаецца перад першай старонкай кнігі або зверху старонкі перад пачаткам тэксту. ‖ *прым.* **франтыспі́сны**, -ая, -ае.

**ФРАНЦІ́ХА** *гл.* франт.

**ФРАНЦІ́ЦЬ**, -нчу́, -нці́ш, -нці́ць; -нці́м, -нціце́, -нця́ць; *незак.* (разм.). Быць франтам, модна апранацца. *Ф. у новым плацці.*

**ФРАНЦУ́ЗЫ**, -аў, *адз.* -цу́з, -а, *м.* Народ раманскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Францыі. ‖ *ж.* **францу́жанка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **францу́зскі**, -ая, -ае.

**ФРАХТ**, -у, *М* -хце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Плата за перавозку грузаў водным шляхам. **2.** Грузы, якія перавозяцца на зафрахтаваным судне, а таксама такая перавозка. ‖ *прым.* **фрахто́вы**, -ая, -ае.

**ФРАХТАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Асоба або ўстанова, якая фрахтуе судны.

**ФРАХТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што.* Наймаць судна для перавозкі грузаў. ‖ *зак.* **зафрахтава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *наз.* **фрахто́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **фрахто́вачны**, -ая, -ае.

**ФРАХТО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Асоба або ўстанова, якая дае судна пад фрахт.

**ФРА́ЧНЫ** *гл.* фрак.

**ФРО́НДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** Дваранска-буржуазны рух супраць абсалютызму ў Францыі ў 17 ст. **2.** *перан.* Непрынцыповая апазіцыя, галоўным чынам па матывах асабістага або групавога характару (кніжн.).

**ФРОНТ**, -у, *М* -нце, *мн.* франты́, -о́ў, *м.* **1.** Строй салдат, войск. **2.** Звернуты да ворага, непрыяцеля край баявога размяшчэння войск, лінія, па якой разгорнуты перадавыя падраздзяленні. *Ф. палка.* **3.** Група дзеючых армій (у 3 знач.) пад кіраўніцтвам аднаго камандуючага. *Трэці Беларускі ф.* **4.** Месца, раён ваенных дзеянняў і размяшчэнне войск у час вайны, а таксама дзеючая армія ў такім раёне. *Адпраўка на ф. папаўнення.* **5.** *перан., чаго.* Месца, участак, сфера якой-н. дзейнасці. *Ф. забудовы горада. Працоўны ф. Пашырыць ф. сяўбы яравых.* **6.** *перан.* Сфера, галіна якой-н. дзейнасці. *Культурны ф.* ◊ **Адзіным фронтам** — дружна, згуртавана. **На два франты** — у двух напрамках (дзейнічаць). **Шырокім фронтам** — з вялікім ахопам, размахам. ‖ *прым.* **франтавы́**, -а́я, -о́е (да 2—4 знач.).

**ФРУКТ**, -а, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Ядомы плод якога-н. дрэва або куста (звычайна садовага). **2.** *перан.* Чалавек, ад якога можна чакаць усякіх непрыемнасцей; тып, суб'ект (разм., пагард.). ‖ *прым.* **фрукто́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Ф. сад.*

**ФРУКТО́ЗА**, -ы, *ж.* Пладовы цукар, які ўтрымліваецца ў пладах, мёдзе і пад. ‖ *прым.* **фрукто́зны**, -ая, -ае.

**ФРЫВО́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* фрывольны. **2.** *мн.* -і, -ей. Фрывольнае слова, выраз. *Не дазваляй сабе гаварыць фрывольнасці.*

**ФРЫВО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Не зусім прыстойны, легкадумны, нясціплы. *Фрывольныя размовы пра жанчын.* ‖ *наз.* **фрыво́льнасць**, -і, *ж.*

**ФРЫКАДЭ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* Клёцка, галачка са здробненага мяса ці рыбы, звараная ў булёне.

**ФРЫКАСЭ́**, *нескл., н.* Нарэзанае дробнымі кавалачкамі смажанае або варанае мяса з якой-н. прыправай.

**ФРЫКАТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. У мовазнаўстве: які ўтвараецца шляхам трэння паветра ў шчыліне паміж збліжанымі моўнымі органамі; шчылінны (пра гукі). *Ф. зычны.*

**ФРЫСТА́ЙЛ**, -а, *м.* Від гарналыжнага спорту, які спалучае хуткасны спуск на лыжах і скачкі з трампліна з элементамі акрабатыкі. *Захапляцца фрыстайлам.*

**ФРЭГА́Т**[1], -а, *М* -га́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Ваеннае парусное трохмачтавае судна. **2.** У флоце некаторых краін: ваенны карабель для вартаўнічай службы супрацьлодачнай і супрацьракетнай абароны. ‖ *прым.* **фрэга́тны**, -ая, -ае.

**ФРЭГА́Т**[2], -а, *М* -га́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая трапічная марская птушка сямейства фрэгатавых з доўгім раздвоеным хвастом.

**ФРЭ́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, фрэз, *ж.* **1.** Шматлязовы рэжучы інструмент для апрацоўкі паверхні металаў, дрэва, пластмас і інш. **2.** Машына для рэзкі торфу, рыхлення глебы, здрабнення грунту і пад. ‖ *прым.* **фрэ́зерны**, -ая, -ае. *Фрэзерныя машыны. Ф. торф.*

**ФРЭЗЕРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак., што* і *без дап.* Апрацаваць (апрацоўваць) фрэзай. ‖ *зак.* **адфрэзерава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. ‖ *наз.* **фрэзерава́нне**, -я, *н.* і **фрэзеро́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **фрэзерава́льны**, -ая, -ае і **фрэзеро́вачны**, -ая, -ае.

**ФРЭЗЕРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па апрацоўцы прадметаў, матэрыялаў фрэзай. *Ф. іголак. Ф. па дрэве.* ‖ *ж.* **фрэзеро́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **фрэзеро́ўшчыцкі**, -ая, -ае.

**ФРЭ́ЙЛЕН**, *нескл., ж.* Зварот да незамужняй жанчыны ў Германіі і некаторых іншых краінах.

**ФРЭ́ЙЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Званне прыдворнай дамы, якая знаходзіцца пры царыцы, каралеве, прынцэсе і пад., а таксама асоба, якая мае гэта званне. *Надаць званне фрэйліны.*

**ФРЭНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Антынавуковае вучэнне, якое сцвярджае наяўнасць сувязі між псіхалагічнымі, маральнымі ўласцівасцямі чалавека і будовай яго чэрапа. ‖ *прым.* **фрэналагі́чны**, -ая, -ае.

**ФРЭНЧ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыталеная куртка ваеннага крою з чатырма накладнымі кішэнямі.

**ФРЭ́СКА**, -і, *ДМ* фрэ́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* **1.** Карціна, напісаная вадзянымі фарбамі на свежаатынкаванай сцяне. *Фрэскі манастыра.* **2.** Від жывапісу: насценны роспіс. ‖ *прым.* **фрэ́скавы**, -ая, -ае. *Ф. жывапіс.*

**ФТОР**, -у, *м.* Хімічны элемент, бледнажоўты газ з рэзкім ядавітым пахам. ‖ *прым.* **фто́рысты**, -ая, -ае.

**ФТЫЗІЯ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па фтызіятрыі.

**ФТЫЗІЯТРЫ́Я**, -і, *ж.* Раздзел медыцыны, які вывучае прычыны ўзнікнення туберкулёзу, метады яго лячэння і папярэджання. ‖ *прым.* **фтызіятры́чны**, -ая, -ае.

**ФУ**, *выкл.* **1.** Ужыв. пры выражэнні дакору, прыкрасці, пагарды, агіды, нездаволенасці і пад. *Фу! Як вам не сорамна! Фу! Брыдота якая!* **2.** Ужыв. для выражэння стомленасці або палёгкі, задавальнення. *Фу! Якая страшэнная спёка! Фу, як здарожыўся!* ◊ **Фу ты** (разм.) — ужыв. пры здзіўленні або раздражненні ад чаго-н.

**ФУ́ГА**, -і, *ДМ* фу́зе, *мн.* -і, фуг, *ж.* (спец.). Музычны твор, заснаваны на паслядоўным паўтарэнні адной музычнай

тэмы некалькімі галасамі. ‖ *прым.* **фу́гавы**, -ая, -ае.

**ФУГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны; *незак., што.* **1.** Стругаць фуганкам. **2.** Шчыльна падганяць і склейваць рабром паверхні дошак. ‖ *зак.* **сфугава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны (да 2 знач.). ‖ *наз.* **фугó́ўка**, -і, *ДМ* -óўцы, *ж. і* **фугава́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **фугава́льны**, -ая, -ае *і* **фугó́вачны**, -ая, -ае.

**ФУГА́НАК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкаў, *м.* Доўгі сталярны рубанак, прызначаны для чыставога стругання дэталей, дошак. ‖ *прым.* **фуга́начны**, -ая, -ае *і* **фуга́нкавы**, -ая, -ае.

**ФУГА́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Зарад выбуховага рэчыва, які закладваецца ў зямлю або пад ваду і ўзрываецца ад удару, запальвання або іншага дзеяння. ‖ *прым.* **фуга́сны**, -ая, -ае.

**ФУГА́СКА**, -і, *ДМ* -га́сцы, *мн.* -і, -сак, *ж.* (разм.). Фугасная авіябомба або фугасны снарад.

**ФУГА́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* фугас. **2.** Які дзейнічае сілай газаў, што ўтвараюцца пры ўзрыве (у адрозненне ад ударнага або запальнага ўздзеяння). *Ф. снарад.*

**ФУГÓВАЧНЫ** *гл.* фугаваць.

**ФУГÓЎКА** *гл.* фугаваць.

**ФУЖЭ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Бакал на высокай ножцы. *Хрустальны ф.* ‖ *прым.* **фужэ́рны**, -ая, -ае.

**ФУ́КНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** *што* або *на што.* Дзьмухнуць або, дзьмухнуўшы, затушыць што-н. *Ф. на пыл. Ф. са стала паперкі. Ф. на свечку.* **2.** *што.* У шашках: зняць з дошкі шашку праціўніка пры яго памылцы ў гульні. ‖ *незак.* **фу́каць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **фу́канне**, -я, *н.*

**ФУ́КСАМ**, *прысл.* (разм.). Нечакана, без усякіх падстаў, не па праву. *Ф. прайсці ў кіно.*

**ФУКСІ́Н**, -у, *м.* (спец.). Ярка-чырвоная анілінавая фарба, якая выкарыстоўваецца для фарбавання паперы, скуры і інш. ‖ *прым.* **фуксі́навы**, -ая, -ае.

**ФУ́КСІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* Дэкаратыўная расліна сямейства скрыпнёвых з яркімі, пераважна чырвонымі кветкамі.

**ФУЛЯ́Р**, -у, *м.* Лёгкая і мяккая шаўковая тканіна. ‖ *прым.* **фуля́равы**, -ая, -ае. *Фуляравая хустка.*

**ФУНДАВА́ЦЬ**, -ду́ю, -ду́еш, -ду́е; -ду́й; *незак., што* (разм.). **1.** Тое, што і *фундзіць.* **2.** Аказваць спонсарскую дапамогу, фінансаваць. ‖ *наз.* **фундава́нне**, -я, *н.*

**ФУНДА́МЕНТ**, -а *і* -у, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Падмурак, аснова для сцен будынка і пад. *Заліць ф.* **2.** -у, *перан.* База, апора, аснова чаго-н. *Ф. ведаў. Навуковы ф.* ‖ *прым.* **фунда́ментны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Фундаментная пліта.*

**ФУНДАМЕНТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Вялікі, трывалы і моцны. *Ф. дом.* **2.** *перан.* Абгрунтаваны, глыбока навуковы. *Фундаментальная навуковая праца.* **3.** Галоўны, асноўны. *Фундаментальная бібліятэка.* ‖ *наз.* **фундамента́льнасць**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ФУНДА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто засноўвае што-н. ці дае фінансавыя сродкі на заснаванне. ‖ *прым.* **фунда́тарскі**, -ая, -ае.

**ФУНДЗІ́ЦЬ**, -джу́, -дзі́ш, -дзі́ць; -дзі́м, -дзіце́, -дзя́ць; *незак., што* (разм.). Частаваць каго-н., купляць што-н. каму-н. у падарунак. *Ф. марожанае.*

**ФУНДУ́К**, -у́, *м.* **1.** Адзін з відаў арэшніку, што расце на поўдні. **2.** *зб.* Плады гэтага арэшніку.

**ФУНІКУЛЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пад'ёмнае збудаванне з канатнай цягай, прызначанае для перавозкі пасажыраў на крутых пад'ёмах, у гарах. ‖ *прым.* **фунікулёрны**, -ая, -ае.

**ФУ́НКЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** З'ява, якая залежыць ад іншай і змяняецца па меры змянення іншай з'явы. **2.** У матэматыцы: закон, паводле якога кожнаму элементу аднаго мноства ставіцца ў адпаведнасць некаторы элемент іншага мноства. *Лінейная ф. Трыганаметрычная ф.* **3.** Работа, спецыфічная дзейнасць, што выконваецца органам, арганізмам і пад. *Ф. залоз.* **4.** Роля, значэнне, назначэнне чаго-н. *Функцыі крэдыту.* **5.** Абавязак, кола дзейнасці. *Службовыя функцыі. Функцыі прафкама.* ‖ *прым.* **функцыяна́льны**, -ая, -ае.

**ФУНКЦЫЯНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; *незак.* Дзейнічаць, быць у рабоце, працаваць. *Ужо месяц функцыянуе бальніца.* ‖ *наз.* **функцыянава́нне**, -я, *н.*

**ФУНКЦЫЯНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* функцыя. **2.** Выкліканы функцыянаваннем чаго-н., залежны ад дзейнасці, а не ад структуры чаго-н. *Ф. падзел працы. Функцыянальнае парушэнне сардэчнай дзейнасці.*

**ФУНТ**[1], -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Руская мера вагі, роўная 409,5 г. **2.** Англійская мера вагі, роўная 453,6 г. ◊ **Па чым фунт ліха** (ведаць, зазнаць, паказаць і пад.; разм.) — зазнаць, як цяжка ў гоьы, у нястачы. ‖ *ласк.* **фу́нцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **фунтó́вы**, -ая, -ае.

**ФУНТ**[2], -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грашовая адзінка ў Вялікабрытаніі і некаторых іншых краінах. *Англійскі ф.*

**ФУ́РА**, -ы, *мн.* -ы, фур, *ж.* Вялікія, звычайна крытыя, калёсы, машына і пад. для перавозкі грузаў.

**ФУРА́Ж**, -у́, *м.* Раслінны корм для свойскай жывёлы і птушак. ‖ *прым.* **фура́жны**, -ая, -ае. *Фуражныя культуры.*

**ФУРА́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* Галаўны ўбор з аколышам і казырком; форменная шапка. ‖ *прым.* **фура́жачны**, -ая, -ае. *Фуражачная майстэрня.*

**ФУРАЖЫ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Работнік па нарыхтоўцы, захаванні і выдачы фуражу. **2.** Той, хто адпраўлены на фуражыроўку (гіст.). ‖ *прым.* **фуражы́рскі**, -ая, -ае.

**ФУРАЖЫРÓЎКА**, -і, *ДМ* -рóўцы, *ж.* (гіст.). Нарыхтоўка фуражу для войск у ваенны час.

**ФУРГÓН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Крытая павозка для паклажы, а таксама крыты аўтамабіль для перавозкі грузаў. ‖ *прым.* **фургó́нны**, -ая, -ае.

**ФУРМА́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -óў *і* **ФУ́РМАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які кіруе коньмі ў запрэжанай павозцы; вазак. ‖ *прым.* **фурма́нскі**, -ая, -ае і **фу́рманскі**, -ая, -ае.

**ФУРМА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Падвода для перавозкі грузаў. ‖ *прым.* **фурма́начны**, -ая, -ае.

**ФУРНІТУ́РА**, -ы, *ж.* Дапаможныя матэрыялы, прыкла́д у якой-н. вытворчасці (напр., у кравецкай справе — гузікі, кнопкі і пад.). *Шавецкая ф.* ‖ *прым.* **фурніту́рны**, -ая, -ае.

**ФУРÓР**, -у, *м.* Шумны публічны поспех. *Кніга зрабіла сапраўдны ф. у грамадстве.*

**ФУРУ́НКУЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гнойнае запаленне валасяного мяшочка і сальнай залозы скуры.

**ФУРУНКУЛЁЗ**, -у, *м.* (спец.). Захворванне, пры якім на целе паяўляецца многа фурункулаў. ‖ *прым.* **фурункулёзны**, -ая, -ае.

**ФУ́РЫЯ**, -і, *мн.* -і, -рый, *ж.* **1.** Багіня помсты ў старажытнарымскай міфалогіі. **2.** *перан.* Злая, сварлівая жанчына (разм.).

**ФУТ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адзінка вымярэння даўжыні ў некаторых краінах, роўная прыкладна 30 см.

**ФУТАРА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *футляр.* ‖ *прым.* **футара́льны**, -ая, -ае.

**ФУТБАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які гуляе ў футбол. ‖ *ж.* **футбалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **футбалі́сцкі**, -ая, -ае.

**ФУТБÓЛ**, -а, *м.* Спартыўная камандная гульня, у якой кожная з каманд імкнецца ўдарамі ног ці галавы забіць мяч у вароты праціўніка. ‖ *прым.* **футбó́льны**, -ая, -ае. *Футбольнае поле.*

**ФУТБÓЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак., што* (разм.). **1.** Падкідаць што-н. нагою. **2.** *перан.* Старацца пазбавіцца ад каго-, чаго-н., перадаючы ад аднаго да другога.

**ФУТБÓЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Трыкатажная кашуля, звычайна без гузікаў, каўняра і кішэняў.

**ФУТЛЯ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скрынка або чахол, куды кладзецца рэч для захавання або перасцярогі ад чаго-н. *Ф. для акуляраў.* ‖ *памянш.* **футля́рчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **футля́рны**, -ая, -ае.

**ФУ́ТРА**, -а, *н.* **1.** Валасяное покрыва на целе жывёлы; шэрсць. **2.** Выробленая шкура пушнога звера, а таксама гэтыя шкуры як прадмет гандлю, вытворчасці. *Ф. ваверкі. Гандляваць футрам.* **3.** Зімовая вопратка з выробленых шкур пушнога

звера. ‖ *прым.* **фу́травы**, -ая, -ае *і* **футро́вы**, -ая, -ае.

**ФУТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак., што.* **1.** У тэхніцы: abліцоўваць унутраную паверхню чаго-н. вогнетрывалымі або хімічна стойкімі матэрыяламі. *Ф. металургічную печ.* **2.** У кравецкай справе: падшываць футрам вопратку. **3.** У сталярскай справе: абшываць дошкамі, абшалёўваць. ‖ *наз.* **футрава́нне**, -я, *н. і* **футро́ўка**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.*

**ФУТРАВІ́НА**, -ы, *ж.* **1.** *зб.* Выробленыя шкуркі пушных звяроў як прадмет гандлю; пушніна. *Гандляваць футравінай.* **2.** Валасяное покрыва пушных звяроў.

**ФУТРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -о́ўцы, *ж.* **1.** *гл.* футраваць. **2.** Слой, абліцоўка з якога-н. вогнетрывалага або хімічна стойкага матэрыялу для пакрыцця ўнутранай паверхні металургічных печаў, каўшоў і пад.

**ФУТРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто займаецца футроўкай. **2.** Той, хто гандлюе футрам. ‖ *ж.* **футро́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц (да 2 знач.).

**ФУТУРАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* (спец.). Навука, якая займаецца прагназаваннем сацыяльных працэсаў. ‖ *прым.* **футуралагі́чны**, -ая, -ае.

**ФУТУРО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па футуралогіі.

**ФУТУРЫ́ЗМ**, -у, *м.* Фармалістычная плынь у літаратуры і мастацтве пачатку 20 ст., якая ў імя стварэння новага стылю адмаўляла рэалізм і культурную спадчыну. ‖ *прым.* **футурысты́чны**, -ая, -ае.

**ФУТУРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паслядоўнік, прыхільнік футурызму. ‖ *ж.* **футуры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **футуры́сцкі**, -ая, -ае.

**ФУТЭ́РКА**, -а, *мн.* -і, -рак, *н.* (разм.). Кароткае футра. *Купілі ф. для хлапчука.*

**ФУФА́ЙКА**, -і, *ДМ* -фа́йцы, *мн.* -і, -фа́ек, *ж.* **1.** Цёплая вязаная кашуля. **2.** Куртка, пашытая на ваце; ватоўка. ‖ *прым.* **фуфа́ечны**, -ая, -ае.

**ФУЭТЭ́**, *нескл., н.* У класічным танцы: фігура (у 2 знач.) з характэрным махавым рухам нагі, які дапамагае павароту або вярчэнню танцоўшчыка.

**ФЫ́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** З шумам выпускаць паветра з ноздраў. *Конь фыркае.* **2.** З шумам, з перарывамі выпускаць газ, пару і пад. *Кран фыркае.* **3.** *перан.* Выказваць незадаволенасць чым-н. (разм.). *Усім незадаволены, на ўсіх фыркае.* ‖ *аднакр.* **фы́ркнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **фы́рканне**, -я, *н.*

**ФЭ́НТЭЗІ**, *нескл., н.* Блізкі да навуковай фантастыкі літаратурны і мастацкі жанр, якому ўласцівы матывы перамяшчэння ў прасторы і часе, штучныя арганізмы, міфалогія старажытных цывілізацый, іншапланетныя светы.

**ФЭСТ**, -у, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Царкоўнае прастольнае свята (часцей каталіцкае). **2.** Наогул свята.

**ФЮЗЕЛЯ́Ж**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Корпус лятальнага апарата, які служыць для размяшчэння экіпажа, пасажыраў і грузаў. ‖ *прым.* **фюзеля́жны**, -ая, -ае.

**ФЮ́РАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Правадыр, кіраўнік у нямецкай фашысцкай арганізацыі. ‖ *прым.* **фю́рарскі**, -ая, -ае.

## Х

**ХААТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Бязладны, пазбаўлены парадку, стройнасці, арганізаванасці. *Хаатычнае перамяшчэнне.* ‖ *наз.* **хааты́чнасць**, -і, *ж.*

**ХАБАНЭ́РА**, -ы, *ж.* Кубінскі народны танец, а таксама музыка да гэтага танца.

**ХА́БАР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грошы або рэчы, якія даюцца каму-н. як подкуп з мэтай атрымання пэўнай выгады. *Браў х., а потым самога забралі.*

**ХАБАРАДАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто дае хабар каму-н. ‖ *ж.* **хабарадава́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ХА́БАРНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто бярэ хабар. ‖ *ж.* **ха́барніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ХА́БАРНІЦТВА**, -а, *н.* Службовае злачынства, звязанае з атрыманнем або дачай хабару. *Х. караецца законам.* ‖ *прым.* **ха́барніцкі**, -ая, -ае.

**ХАБАТО́К**, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* **1.** *гл.* хобат. **2.** Орган ссання ў членістаногіх жывёл у выглядзе выцягнутага ў трубку ротавага прыдатка. ‖ *прым.* **хабатко́вы**, -ая, -ае.

**ХАВА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто хавае што-н., кладзе ў невядомае для іншых месца. **2.** Службовая асоба ў музеях, бібліятэках і пад., якая зберагае, захоўвае што-н. *Х. рукапісаў.* ‖ *ж.* **хава́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ХАВА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Забірацца куды-н., каб іншыя не бачылі, не маглі знайсці. *Партызаны хаваліся ў лясах. Х. за шафу.* **2.** *перан.* Ухіляцца ад чаго-н. *Х. ад работы.* **3.** *перан.* Рабіць што-н. так, каб быць незаўважаным. **4.** Быць заслоненым чым-н. *За горкай хавалася хатка.* **5.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Знаходзіцца, захоўвацца дзе-н. (разм.). *Адзенне і палотны хаваліся ў скрыні.* **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Зберагацца на пэўны выпадак. *На жніво заўсёды хавалася сала.* ‖ *зак.* **схава́цца**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца.

**ХАВА́ЦЬ**[1], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Класці, размяшчаць дзе-н. так, каб ніхто не змог знайсці або ўбачыць. *Х. грошы.* **2.** *каго-што.* Укрываць, ахоўваць ад небяспекі. *Х. параненых партызан.* **3.** *перан., што.* Не выяўляць адкрыта. *Х. свае думкі. Х. усмешку.* **4.** *каго-што.* Засланяць сабой, рабіць нябачным. *Разложыстая груша ў сваім цяні хавае хатку.* **5.** *што.* Трымаць што-н. у пэўным месцы. *Х. рукі ў кішэнях.* **6.** *што.* Змяшчаць, утрымліваць у сабе. *Зямля хавае ў сваіх нетрах незлічоныя багацці.* **7.** *што.* Зберагаць для пэўнай патрэбы, не траціць, захоўваць. *Х. яблыкі на зіму.* **8.** *што.* Берагчы як скарб, трымаць у памяці. *Х. у памяці мінулае.* ‖ *зак.* **схава́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны. ‖ *наз.* **хава́нне**, -я, *н.*

**ХАВА́ЦЬ**[2], -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *зак., каго-што.* **1.** Закопваць нябожчыка або крэміраваць яго і ўстанаўліваць урну з прахам дзе-н. **2.** *перан.* Лічачы аджыўшым, аддаваць забыццю; забываць. *Х. свае мары.* ‖ *зак.* **пахава́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *наз.* **пахава́нне**, -я, *н.* ‖ *наз.* **хава́нне**, -я, *н.*

**ХАДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *ж.* **1.** Перамяшчэнне на нагах. *Стаміцца ад доўгай хады.* **2.** Уласцівая каму-н. манера хадзіць; паходка. *Лёгкая х.* **3.** *перан.* Цячэнне, развіццё чаго-н., ход. *Х. падзей.*

**ХАДАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* ход. **2.** Які знаходзіцца на хаду, у эксплуатацыі. *Х. транспарт.* **3.** Які мае вялікі попыт; які знаходзіцца ў шырокім ужытку (разм.). *Х. тавар. Хадавая тэма.* **4.** Які многа дзе бываў, ведае справу; лоўкі, растаропны (разм.). *Хадавая жанчына.* **5.** Звязаны з перамяшчэннем у пэўны перыяд у пэўным напрамку (спец.). *Хадавая рыба.*

**ХАДА́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Той, хто хадайнічае за каго-н. **2.** Асоба, якая вядзе чыю-н. справу ў судах (уст.). ‖ *ж.* **хада́йніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ХАДА́ЙНІЦТВА**, -а, *н.* Афіцыйная просьба ў пісьмовай або вуснай форме. *Адмовіць у хадайніцтве.*

**ХАДА́ЙНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., за каго-што, аб кім-чым.* Выступаць з хадайніцтвам. ‖ *зак.* **пахада́йнічаць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **хада́йнічанне**, -я, *н.*

**ХАДАКІ́**, -о́ў, *адз.* хада́к, -а́, *м.* (разм.). Боты, у якіх адрэзаны халявы. *Уссунуць х. на ногі.*

**ХАДЖА́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які многа бываў дзе-н.; бывалы. **2.** Пра каня: які хадзіў у запрэжцы.

**ХАДЗІ́ЦЬ**, хаджу́, хо́дзіш, хо́дзіць; *незак.* **1.** Мець здольнасць, магчымасць рухацца, перамяшчацца, ступаючы нагамі (пра чалавека, жывёл). *Дзіця рана пачало х.* **2.** Тое, што і *ісці* (у 1 знач.), аднак рух паўтараецца ў розны час, у розных напрамках. *Х. па садзе.* **3.** Тое, што і *ісці* (у 2

знач.), аднак рух паўтараецца ў розны час, у розных напрамках. *Аўтобус да горада ходзіць два разы ў дзень.* **4.** Тое, што і *ісці* (у 3 знач.), аднак рух паўтараецца ў розны час, у розных напрамках. *Х. па вёсках. Х. у ягады. Х. у школу.* **5.** Тое, што і *ісці* (у 10 знач.), аднак рух паўтараецца працяглы час. *Гадзіннік добра х.* **6.** Рабіць ход фігурай, картай і пад. *Х. каралём.* **7.** *перан.* Распаўсюджвацца, станавіцца вядомым. *Ходзяць чуткі па свеце.* **8.** Перамяшчацца, рухацца патокам, масай і пад. *Ходзяць хмары, а дажджу няма.* **9.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Передавацца, пераходзіць ад аднаго да другога. *Кніжка хадзіла па ўсім інстытуце. Ходзіць грып.* **10.** Рухацца ўзад і ўперад або ўверх і ўніз, з боку ў бок. *Падлога ходзіць пад нагамі.* **11.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Падымацца і апускацца пры глыбокім дыханні, напружанні і пад. *Так сапе, аж грудзі ходзяць.* **12** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Брадзіць, укісаючы. *Цеста ходзіць.* **13.** *за чым.* Выконваць якую-н. работу пры дапамозе пэўнай прылады (разм.). *Х. за плугам.* **14.** *за кім.* Клапаціцца аб кім-, чым-н., даглядаць каго-, што-н. *Х. за хворым. Х. за скацінай.* **15.** Апранацца ў што-н., насіць што-н., мець пэўны знешні выгляд. *Х. у ботах. Х. без шапкі.* **16.** Быць у якім-н. званні, выконваць якія-н. абавязкі (разм.). **17.** Быць цяжарнай (пра жанчыну; разм.). *Х. другім дзіцем.* **18.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра коней, валоў і пад.: выкарыстоўвацца тым ці іншым чынам. *Х. у плузе. Х. пад сядлом.* **19.** Адпраўляць натуральную патрэбу (разм.). *Дзіця ходзіць на гаршчок.* **20.** *заг.* **хадзі(це).** Запрашэнне ісці куды-н. (разм.). *Хадзі сюды.* ◊ **На галаве хадзіць** (разм., неадабр.) — дурэць, сваволіць. ‖ *зак.* **схадзíць**, схаджý, схóдзіш, схóдзіць (да 4 і 19 знач.). ‖ *наз.* **ход**, -у, *М* хóдзе (да 5 і 6 знач.), **хаджэ́нне**, -я, *н.* (да 2, 4, 9 і 13 знач.) *і* **хадзьбá**, -ы́, *ж.* (да 1 і 2 знач.). *Ход поршня помпы. Хаджэнне па справах. Увесь дзень у хадзьбе. Спартыўная хадзьба.*

**ХАДЗЯ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** Які можа хадзіць на ўласных нагах. *Х. хворы.* **2.** Шырокавядомы, шырокаўжывальны. *Х. выраз.* ◊ **Хадзячая энцыклапедыя** — пра адукаванага чалавека, які валодае самымі разнастайнымі ведамі.

**ХАДНЯ́**, -í, *ж.* (разм.). Хада, хаджэнне. *Пад поўнач х. заціхла.*

**ХАДÓВЫ**, -ая, -ае (разм.). Дзелавы, гаспадарлівы; пранырлівы. *Х. чалавек.*

**ХАДÓК**, хадакá, *мн.* хадакí, хадакóў, *м.* **1.** Той, хто ходзіць пехатой. *У каго сілы хапае, той і х. добры.* **2.** Выбраная асоба, якая пасылаецца куды-н. з хадайніцтвам, даручэннем. *Сялянскія хадакі.* ◊ **Не хадок** *хто куды* (разм.) — пра таго, хто больш не можа ці не хоча хадзіць куды-н. *Я туды больш не хадок.*

**ХАДУ́ЛІ**, -дýль *і* -яў, *адз.* хадýля, -і, *ж.* **1.** Шасты з высока прыбітымі прыступкамі, стаўшы на якія можна хадзіць вялікімі крокамі. *Хадзіць на хадулях.* **2.** *перан.* Пра што-н. напышлівае, высакамернае, ненатуральнае. **3.** *перан.* Доўгія ногі (разм.).

**ХАДУ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Збіты, пазбаўлены арыгінальнасці. *Х. выраз.* ‖ *наз.* **хадýльнасць**, -і, *ж.*

**ХАДУ́Н**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Дэталь машыны, механізма, якая знаходзіцца ў пастаянным руху. **2.** толькі *мн.* Прыстасаванне ў выглядзе рамы на колцах, пры дапамозе якога дзяцей вучаць хадзіць (разм.).

**ХАДУНКÍ**, -óў, *адз.* хадунóк, -нкá, *м.* Тое, што і *хадун* (у 2 знач.).

**ХАЗА́РЫ**, -аў, *адз.* -зáр, -а, *м.* Цюркамоўны вандроўны народ, які ўтварыў у 7—10 стст. дзяржаву з тэрыторыяй ад ніжняй Волгі да Каўказа і Паўночнага Прычарнамор'я. ‖ *ж.* **хазáрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **хазáрскі**, -ая, -ае.

**ХАЙ. 1.** *часц.* Выражае заклік, пажаданне (разм.). *Хай жыве дружба!* **2.** *часц.* Выказвае дапушчэнне. *Хай едзе, калі хоча. Хай так!* **3.** *злуч.* Ужыв. ў даданых сказах з уступальным значэннем. *Хай я памыліўся, але памылку гэту я выпраўлю.*

**ХАЙ-ТЭ́К**, *нескл., м.* **1.** Самыя новыя навукова-тэхнічныя распрацоўкі. **2.** Кірунак у архітэктуры і дызайне, які эстэтычна засвойвае інавацыйныя распрацоўкі передавых галін навукі і тэхнікі.

**ХАКА́СЫ**, -аў, *адз.* -кáс, -а, *м.* Цюркскі народ, які жыве ў Рэспубліцы Хакасіі, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **хакáска**, -і, *ДМ* -кáсцы, *мн.* -і, -сак. ‖ *прым.* **хакáскі**, -ая, -ае. *Хакаская мова.*

**ХАКЕ́ІСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які гуляе ў хакей. ‖ *ж.* **хакеíстка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **хакеíсцкі**, -ая, -ае.

**ХАКЕ́Й**, -éя, *м.* Спартыўная каманадная гульня з клюшкамі і шайбай на лёдзе або з мячом на траве. *Х. з мячом.* ‖ *прым.* **хакéйны**, -ая, -ае.

**ХА́КІ. 1.** *прым., нязм.* Шаравата-зялёны. *Гімнасцёрка колеру х.* **2.** *нескл., н.* Тканіна або адзенне такога колеру. *Апранацца ў х.*

**ХАЛАДА...** (*гл.* **холада...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «холада...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *халадабойня, халадатранспарт, халадатэхніка.*

**ХАЛАДАБÓЙНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Невялікая бойня з халадзільнікамі для захоўвання мяса забітай жывёлы.

**ХАЛАДА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *безас.* Пра наступленне халадоў, паніжэнне тэмпературы паветра. *У кастрычніку стала х.* **2.** Тое, што і *халадзець* (у 2 знач.; разм.). **3.** Пакутаваць ад холаду; мерзнуць (разм.). *У вайну і халадалі і галадалі.* ‖ *зак.* **пахаладáць**, -áе (да 1 знач.).

**ХАЛАДЗЕ́Ц**, -дцý, *м.* Страва з загусцелага пры ахаладжэнні мяснога або рыбнага адвару з дробнымі кавалачкамі мяса або рыбы. ‖ *прым.* **халадцóвы**, -ая, -ае.

**ХАЛАДЗЕ́ЦЬ**, -éю, -éеш, -éе; *незак.* **1.** Станавіцца халодным, халаднейшым. *У канцы лета раніцы халадзеюць. Рукі халадзеюць.* **2.** *перан.* Адчуваць холад ад моцнага хвалявання, страху і пад. *Кроў халадзее ў жылах.* ‖ *зак.* **пахаладзéць**, -éю, -éеш, -éе.

**ХАЛАДЗÍЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Шафа з халадзільнай устаноўкай. *Трымаць прадукты ў халадзільніку.* **2.** Збудаванне, прадпрыемства, спецыяльнае памяшканне з паніжанай тэмпературай для захоўвання чаго-н. у холадзе. *Вагон-х. Прамысловы х.* ‖ *прым.* **халадзíльнікавы**, -ая, -ае.

**ХАЛАДЗÍЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для ахаладжэння, замарожвання чаго-н., захавання чаго-н. пры штучна паніжанай тэмпературы. *Халадзільная камера. Халадзільная тэхніка.*

**ХАЛАДЗÍНА**, -ы, *ж.* (разм.). Тое, што і *халадэча. На дварэ х.*

**ХАЛАДЗÍЦЬ**, -ладжý, -лóдзіш, -лóдзіць; *незак.* **1.** *што.* Рабіць халодным, ахалоджваць, астуджваць. *Раса холодзіць ногі.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *каго-што і без дап.* Выклікаць адчуванне холаду. *Вецер дзьмуў у спіну і прыемна халадзіў. Страх халадзіў кроў у жылах* (перан.).

**ХАЛАДЗÍШЧА**, -а, *м.* Вельмі моцны холад.

**ХАЛАДНАВА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Умерана халодны. *Халаднаватае надвор'е.* **2.** *перан.* Раўнадушны, бясстрасны. *Халаднаватыя адносіны.* ‖ *наз.* **халаднавáтасць**, -і, *ж.*

**ХАЛАДНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -éе; *незак.* **1.** Станавіцца халодным, халаднейшым. *Бліжэй к вечару паветра халаднела. Рукі пачынаюць х.* **2.** *перан.* Траціць душэўную цеплыню, станавіцца абыякавым. *Дружба астывала, халаднела.* ‖ *зак.* **пахаладнéць**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -éе.

**ХАЛАДНÍК**, -ý, *м.* Халодная страва з бацвіння ці шчаўя, запраўленая пакрышаным агуркам, цыбуляй, яйцом і смятанай. ‖ *прым.* **халаднікóвы**, -ая, -ае.

**ХАЛАДÓК**, -дкý, *м.* **1.** Цяністае месца, цянёк. *Сядзець у халадку.* **2.** Свежае халаднаватае паветра. *Павеяла халадком.* **3.** Час сутак, калі ўжо спала або яшчэ не наступіла спёка. *Халадком добра касіць.* **4.** *перан.* Стрыманасць, раўнадушнасць у адносінах да каго-, чаго-н. *У голасе яго адчуваўся х.*

**ХАЛАДЭ́ЧА**, -ы, *ж.* Моцны холад. *Ухаце х., не вытрымаць.*

**ХАЛАМÍДА**, -ы, *ДМ* -мíдзе, *мн.* -ы, -мíд, *ж.* (разм.). Тое, што і *хламіда* (у 2 знач.).

**ХАЛАСТЫ́**[1], -áя, -óе. **1.** Нежанаты. *Х. мужчына.* **2.** Уласцівы нежанатаму чалавеку. *Халастое жыццё.* **3.** Які складаецца з халасцякоў. *Халастая кампанія.*

**ХАЛАСТЫ́**[2], -áя, -óе. **1.** Не звязаны з выкананнем карыснай работы, не рабочы. *Матор працаваў на халастых абаротах. Змагацца з халастым прабегам машын.* **2.** Не здольны паразіць цэль; не баявы (пра патрон, стральбу і пад.). *Х. выстрал.*

**ХАЛАСЦЯ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Нежанаты мужчына. *Стары х.* ‖ *прым.* **халасця́цкі**, -ая, -ае.

**ХАЛАСЦЯ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (разм.). Незамужняя жанчына (звычайна пра немаладую).

**ХАЛА́Т**, -а, *М* -ла́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Верхняе хатняе або рабочае адзенне, якое захінаецца або зашпіляецца. *Рабочы х.* **2.** Верхняе адзенне ў некаторых азіяцкіх народаў, полы якога захінаюцца адна за другую. ‖ *памянш.* **хала́цік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **хала́тны**, -ая, -ае. *Халатная тканіна.*

**ХАЛА́ТНЫ**[1], -ая, -ае. Нядобрасумленны, нядбайны. *Халатныя адносіны да выканання сваіх абавязкаў.* ‖ *наз.* **хала́тнасць**, -і, *ж.*

**ХАЛА́ТНЫ**[2] *гл.* халат.

**ХАЛВА́**, -ы́, *ж.* Салодкі кандытарскі выраб у выглядзе спрасаванай масы з расцёртага сланечніку, арэхаў і пад. ‖ *прым.* **халво́вы**, -ая, -ае. *Халвовая маса.*

**ХА́ЛЕПА**, -ы, *ж.* (разм.). Надвор'е са снегам і дажджом; хлюпота. ‖ *прым.* **ха́лепны**, -ая, -ае.

**ХАЛЕ́РА**, -ы, *ж.* **1.** Востразаразная кішэчная хвароба, якая суправаджаецца рвотай, паносам, агульным парушэннем дзейнасці арганізма. **2.** Ужыв. як лаянкавае слова (разм., груб.). *Х. яго ведае.* ‖ *прым.* **хале́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Халерная эпідэмія.*

**ХАЛЕ́РЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек халерычнага тэмпераменту.

**ХАЛЕРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Тэмпераментны, неўраўнаважаны, які лёгка ўзбуджаецца пад уздзеяннем якіх-н. уражанняў.

**ХАЛІ́Ф**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тытул вярхоўнага правіцеля ў мусульман, а таксама асоба, якая мае гэты тытул. ‖ *прым.* **халі́фскі**, -ая, -ае.

**ХАЛІФА́Т**, -а, *М* -фа́це, *м.* (гіст.). **1.** Сістэма мусульманскага феадальнага кіравання, пры якой халіф спалучаў свецкую ўладу з духоўнай. **2.** *мн.* -ы, -аў. Феадальная дзяржава, створаная ў выніку арабскага заваявання, якую ўзначальваў халіф. ‖ *прым.* **халіфа́цкі**, -ая, -ае.

**ХАЛМАГО́РКА**, -і, *ДМ* -го́рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (разм.). Карова або гусь халмагорскай пароды, выведзеныя ў Халмагорах. ‖ *прым.* **халмаго́рскі**, -ая, -ае.

**ХАЛО́ДНЫ**, -ая, -ае. **1.** З нізкай або адносна нізкай тэмпературай (паветра, цела і пад.). *Халоднае лета. Халодныя рукі.* **2.** Які астыў, страціў цеплыню. *Х. суп. Халодная каша.* **3.** Які не ацяпляецца. *Халодная веранда.* **4.** Які дае мала цяпла, дрэнна грэе, не трымае цяпла. *Халодныя боты. Халодныя рукавіцы.* **5.** Які пакутуе ад холаду (разм.). *Дзеці былі часта галодныя і халодныя.* **6.** Які ажыццяўляецца пры нізкіх тэмпературах, без награвання. *Халодная коўка металу.* **7.** *перан.* Звязаны з пачуццём унутранага, душэўнага холаду. *Х. чалавек.* **8.** *перан.* Строгі і нядобразычлівы. *Х. погляд. Х. прыём.* **9.** *перан.* Пра фарбы і пад.: якія адносяцца да сіне-блакітнага тону спектра. *Халодныя адценні.* **10.** *у знач. наз.* **хало́дная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Памяшканне для арыштаваных (разм., уст.). *Пасадзіць у халодную.* **11.** *у знач. наз.* **хало́днае**, -ага, *н.* Тое, што і *халадзец.* ○ **Халодная вайна** — геапалітычная, эканамічная, ідэалагічная канфрантацыя паміж ЗША і СССР у сярэдзіне 20 ст. **Халодная зброя** — зброя, якой рэжуць, колюць і пад. (шабля, піка, штык і інш.). ‖ *наз.* **хало́днасць**, -і, *ж.* (да 7 і 9 знач.).

**ХАЛО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У Старажытнай Русі: паднявольная асоба, пазбаўленая асабістай свабоды. **2.** У прыгоннай Расіі: прыгонны, залежны селянін, слуга. **3.** *перан.* Пра чалавека, які рабалепствуе, падхалімнічае перад кім-н.; халуй. ‖ *ж.* **хало́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак. ‖ *прым.* **хало́пскі**, -ая, -ае.

**ХАЛО́ПНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Дзейнічаць па-халопску, так, як халоп (у 2 знач.); рабалепстваваць.

**ХАЛО́ПСТВА**, -а, *н.* **1.** Форма феадальнай залежнасці, блізкая да рабства. **2.** *зб.* Халопы. **3.** *перан.* Паводзіны, уласцівыя халопу (у 2 знач.).

**ХАЛТУ́РА**, -ы, *ж.* (разм.). **1.** Пабочны, звычайна лёгкі заработак звыш асноўнага. *Пасля работы займацца халтурай.* **2.** Нядобрасумленна, неахайна, без ведання справы выкананая работа, а таксама рэч, зробленая такім чынам. ‖ *прым.* **халту́рны**, -ая, -ае.

**ХАЛТУ́РНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** *гл.* халтура. **2.** Які з'яўляецца халтурай (у 2 знач.). *Халтурная работа.* ‖ *наз.* **халту́рнасць**, -і, *ж.*

**ХАЛТУ́РШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). **1.** Той, хто займаецца халтурай (у 1 знач.). **2.** Той, хто робіць што-н. нядобрасумленна, неахайна. ‖ *ж.* **халту́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **халту́ршчыцкі**, -ая, -ае.

**ХАЛТУ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* (разм.). **1.** Займацца якой-н. работай звыш асноўнай для пабочнага заробку. **2.** Нядобрасумленна адносіцца да працы, неахайна выконваць работу.

**ХАЛУ́Й**, -я́, *мн.* -í, -ёў, *м.* Слуга, лакей (гіст.). **2.** *перан.* Падхалім (пагард.). ‖ *прым.* **халу́йскі**, -ая, -ае. *Халуйская паслужлівасць.*

**ХАЛУ́ЙСТВА**, -а, *н.* (пагард.). Паводзіны халуя; падхалімства.

**ХАЛУ́ЙСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* (пагард.). Весці сябе па-халуйску; падхалімнічаць.

**ХАЛУ́ПА**, -ы, *мн.* -ы, -лу́п, *ж.* Невялікая бедная хата. *Жыць у халупе.*

**ХАЛЦЭДО́Н**, -у, *м.* Мінерал, разнавіднасць кварцу. ‖ *прым.* **халцэдо́навы**, -ая, -ае.

**ХАЛЭ́МУС**, *нескл., м., у знач. вык., каму-чаму* (разм., жарт.). Гібель, канец, смерць.

**ХАЛЯ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -я́ў, *ж.* Частка бота, якая закрывае нагу ад ступні да калена. *Прышыць новыя перады да халяў.* ◊ **На халяву** (разм., груб.) — 1) хітруючы, нічога не робячы (жыць, пражыць і пад.); на дурніцу. *Пражыць жыццё на халяву;* 2) бясплатна, дарэмна, нічога не плацячы (рабіць што-н.).

**ХАМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Чалавек ніжэйшага саслоўя, звычайна селянін (гіст.). **2.** Грубы, нахабны чалавек (разм., лаянк.). ‖ *ж.* **ха́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак.

**ХАМАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Схільны да хамства, грубы (разм.). ‖ *наз.* **хамава́тасць**, -і, *ж.*

**ХАМЕЛЕО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Жывёліна атрада лускаватых, здольная мяняць афарбоўку покрыва ў залежнасці ад змен акаляючага асяроддзя. **2.** *перан.* Чалавек, які часта мяняе свае думкі і погляды ў залежнасці ад абставін. ‖ *прым.* **хамелео́навы**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **хамелео́нскі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ХАМЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* (разм.). Станавіцца хамам, пачынаць весці сябе па-хамску. ‖ *зак.* **ахаме́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**ХАМ'Ё**, -я́, *н., зб.* (разм., груб.). Хамы. *Трэба пазбаўляцца ад хам'я.*

**ХАМІ́ЦЬ**, -млю́, -мі́ш, -мі́ць; -мí, -мі́це́, -мя́ць; *незак.* (разм.). Паводзіць сябе груба і бесцырымонна. *Х. дарослым.* ‖ *зак.* **нахамі́ць**, -млю́, -мі́ш, -мі́ць; -мí, -мі́це́, -мя́ць.

**ХАМСА́**, -ы́, *ж.* Дробная марская рыба, якая ўжыв. у кансерваваным выглядзе; анчоус. ‖ *прым.* **хамсо́вы**, -ая, -ае.

**ХА́МСКІ**, -ая, -ае. Уласцівы хаму; грубы, бесцырымонны. *Хамскія адносіны.*

**ХА́МСТВА**, -а, *н.* Хамскія паводзіны, грубасць, нахабнасць, бесцырымоннасць. *Трэба выкараняць х.*

**ХАМУ́ЛА**, -ы, *мн.* -ы, -му́л *і* -аў, *м.* (разм., зневаж.). Хам.

**ХАМУ́Т**, -á, *М* -муце́, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Частка вупражы ў выглядзе драўлянага каркаса, абкладзенага з унутранага боку мяккім лямцам, якая надзяваецца каню на шыю. **2.** *перан.* Абуза, клопаты, паднявольнае становішча (разм.). *Зняць х. з сябе. Хто згадзіўся надзець шоры, той надзене і х.* (з нар.). **3.** Прыстасаванне кальцавой формы для змацоўвання, злучэння чаго-н. (спец.). **4.** Грубы, некультурны чалавек, хам (разм., груб.). ‖ *памянш.* **хаму́цік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 і 3 знач.). ‖ *прым.* **хаму́тны**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ХАМУ́ЦІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* хамут. **2.** Заціскачка ў металарэзным станку, якая передае выраб вярчэнне ад патрона (спец.).

**ХАМУЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* Мяккі лямцавы валік, які прымацоўваецца пад клешчы хамута, каб не націралі шыю каню.

**ХАМЯ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Грызун сямейства хамякоў, шкоднік палявых і агародных культур. ‖ *прым.* **хамя́чы**, -ая, -ае і **хамячы́ны**, -ая, -ае (разм.).

**ХАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тытул манарха, феадальнага правіцеля ў некаторых цюркскіх і мангольскіх народаў, а таксама асоба, якая мае гэты тытул. ‖ *прым.* **ха́нскі**, -ая, -ае.

**ХАНА́**, *нескл., ж., у знач. вык., каму-чаму* (разм.). Канец, смерць. *Цяпер яму х.!*

**ХАНДРА́**, -ы́, *ж.* Маркотны, сумны настрой; туга.

**ХАНДРЫ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; *незак.* Знаходзіцца ў стане хандры; сумаваць, тужыць. *Х. ад адзіноты.*

**ХАНЖА́**, -ы́, *ДМ* -ы́, *Т* -ой *і* -о́ю, *мн.* -ы́, -э́й, *м.* і *ж.* Прытворна набожны або прытворна дабрадушны чалавек; крывадушнік. ‖ *прым.* **ха́нжаскі**, -ая, -ае. *Ханжаскія паводзіны.*

**ХА́НЖАСТВА**, -а, *н.* Паводзіны, уласцівыя ханжы; крывадушнасць.

**ХА́НСТВА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Дзяржава, якой правіць хан.

**ХА́НТЫ**, *нескл., м.* і *ж.* Угорскі народ, які жыве на поўначы Заходняй Сібіры. ‖ *прым.* **ха́нты**, *нязм. і* **ханты́йскі**, -ая, -ае.

**ХАО́С**, -у, *м.* **1.** У старажытнагрэчаскай міфалогіі: бязмерная прастора, стыхія, што існавала да ўзнікнення свету, зямлі і жыцця на ёй. **2.** *перан.* Беспарадак, неразбярыха; блытаніна. *У. пакоі х.*

**ХАПА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які служыць для хапання, памагае хапанню. *Хапальныя органы.*

**ХАПАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** *гл.* хапа́ць. **2.** Добра зарабіць на чым-н. (разм.). *Хапануў грошай за бульбу.* **3.** Забраць што-н. у каго-н.; незаконна прысвоіць (разм.). *У яго хапанулі рукавіцы.* **4.** Выпіць спіртнога, напіцца (разм.). *Х. спірту.*

**ХАПА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** *за каго-што.* Браць, хапаць рукою (рукамі) каго-, што-н., брацца. *Х. за плот.* **2.** *за што.* Паспешліва брацца за які-н. інструмент, прыладу і пад., каб выканаць якую-н. работу (разм.). *Х. за лапату.* **3.** *за што.* Паспешна і несістэматычна рабіць што-н., пераходзячы ад адной справы да другой (разм.). *Не ведаю, за што х. Яна за ўсё хапаецца і нічога не даводзіць да канца.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Пра рыбу: кляваць насадку, лавіцца на вуду, спінінг (разм.). *На белую блешню добра хапаюцца шчупакі.* ‖ *зак.* **схапі́цца**, схаплюся, схо́пішся, схо́піцца *і* **хапі́цца**, хаплюся, хо́пішся, хо́піцца (да 1—3 знач.).

**ХА́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* (разм.). Браць, красці, прысвойваць што-н. незаконна. ‖ *аднакр.* **ха́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты. ‖ *наз.* **ха́панне**, -я, *н.*

**ХАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак., каго-што.* **1.** Браць рэзкім паспешлівым рухам рукі, зубоў, рота. *Х. кнігі і хутка складваць у партфель.* **2.** З цяжкасцю або прагна дыхаць. *Х. ротам паветра.* **3.** Лавіць, затрымліваць, браць сілай каго-н. (разм.). *Х. хуліганаў.* **4.** *перан.* Хутка, прагна ўспрымаць што-н., засвойваць на хаду (разм.). **5.** З прагнасцю браць, купляць без разбору (разм.). *Х. што папала.* **6.** *безас.* Быць дастатковым. *Не хапае часу. У нас усяго хапае.* ‖ *зак.* **схапі́ць**, схаплю, схо́піш, схо́піць; схо́плены (да 1—4 знач.) *і* **хапі́ць**, хаплю́, хо́піш, хо́піць; хо́плены (да 1 знач.). ‖ *аднакр.* **хапану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1, 2 і 4 знач.). ‖ *наз.* **хапа́нне**, -я, *н.*

**ХАПІ́ЦЦА**, хаплюся, хо́пішся, хо́піцца; *зак.* **1.** *гл.* хапацца. **2.** *каго-чаго.* Успомніўшы, пачаўшы шукаць, раптоўна выявіць адсутнасць каго-, чаго-н. *Хапіўся ключоў, а іх няма.* **3.** Агледзеўшыся, спахапіцца, раптоўна заўважыць што-н. *Хапіўся, што хату не замкнуў.*

**ХАПІ́ЦЬ**, хаплю́, хо́піш, хо́піць; хо́плены; *зак.* **1.** *гл.* хапа́ць. **2.** *што, чаго* і *без дап.* Выпіць; хутка праглынуць што-н. (разм.). *Хапіў з дзежкі, што не бачыць сцежкі* (прыказка). **3.** *перан., чаго.* Перажыць, перанесці што-н. цяжкае, непрыемнае (разм.). *Х. гора.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *што.* Зрабіць цвёрдым (пра дзеянне холаду; разм.). *Марозік хапіў зямлю.* **5.** Пераступіць межы ў разважаннях, выказваннях і пад. (разм.). *Во куды хапіў!* **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *каго-што.* Раптоўна і моцна забалець (разм.). *Жывот хапіў.* **7.** *безас., чаго.* Быць дастатковым. *Яды хапіла ўсім.* **8.** **хо́піць**, *з інф.* або *без дап.* Дастаткова, даволі (разм.). *Х. спаць.*

**ХАПУ́ГА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -пу́зе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -пу́г (разм.). Той, хто хапае; прагны да нажывы; хабарнік, злодзей.

**ХАРАВЫ́** *гл.* хор.

**ХАРАКІ́РЫ**, *нескл., н.* У японскіх самураяў: самазабойства шляхам успорвання жывата.

**ХАРА́КТАР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сукупнасць усіх устойлівых псіхічных уласцівасцей чалавека, яго асабістых рыс, якія праяўляюцца ў паводзінах і дзейнасці. *Слабы х. Мяккі х.* **2.** Настойлівасць у дасягненні чаго-н. *Чалавек з характарам.* **3.** Уласцівасць, адметная рыса чаго-н. *Х. эпохі. Дзелавы х.*

**ХАРАКТАРЫЗАВА́ЦЦА**, -зу́юся, -зу́ешся, -зу́ецца; -зу́йся; *незак.* Мець якія-н. характэрныя рысы. *Стэпавыя раёны характарызуюцца сухім кліматам.*

**ХАРАКТАРЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* **1.** Даць (даваць) характарыстыку каму-, чаму-н. *Х. вучня з боку паводзін.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Выявіць (выяўляць) адметную рысу, асаблівасць каго-, чаго-н. *Яго характарызуе чуласць да людзей. Нашу літаратуру характарызуе дэмакратычнасць.* ‖ *зак.* таксама **ахарактарызава́ць**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны (да 1 знач.).

**ХАРАКТАРЫ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *мн.* -і, -тык, *ж.* **1.** Апісанне характэрных рыс, асаблівасцей, якасцей каго-, чаго-н. *Х. дзеючых персанажаў твора.* **2.** Афіцыйны дакумент з водзывам, заключэннем аб чыёй-н. дзейнасці. *Х. з месца працы.*

**ХАРАКТЭ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** З рэзка выяўленымі, своеасаблівымі рысамі. *Х. твар.* **2.** Уласцівы каму-, чаму-н. *Характэрныя рысы героя рамана.* **3.** У мастацтве: уласцівы пэўнаму народу, эпосе, грамадскаму асяроддзю. *Характэрныя ролі. Характэрныя танцы.* ‖ *наз.* **характэ́рнасць**, -і, *ж.*

**ХАРА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рэлігійнае многагалосае песнапенне, а таксама музычная п'еса ў такой форме. *Харалы Баха.* ‖ *прым.* **хара́льны**, -ая, -ае.

**ХАРАСТВО́**, -а́, *н.* **1.** Сукупнасць якасцей, якія прыносяць задавальненне, асалоду зроку, слыху; усё прыгожае і прыемнае. *Якое х. вакол!* **2.** Краса, прыгажосць, чароўнасць. *Х. прыглядзіцца, а розум прыгадзіцца* (прыказка).

**ХАРАШУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *прыгажун.* ‖ *ж.* **харашу́ха**, -і, *ДМ* -шу́се, *мн.* -і, -шу́х (разм.).

**ХАРАШЫ́ЦЦА**, харашу́ся, харо́шышся, харо́шыцца; *незак.* (разм.). Прыбірацца, прыхарошвацца.

**ХАРАШЫ́ЦЬ**, -ашу́, -о́шыш, -о́шыць; *незак., каго-што* (разм.). Надаваць каму-, чаму-н. больш прыгожы, прывабны выгляд.

**ХАРАШЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* Станавіцца больш прыгожым, прывабным. *Дзяўчынка з кожным днём харашэе. Харашэе наш родны Мінск.* ‖ *зак.* **пахарашэ́ць**, -э́ю, -э́еш, -э́е.

**ХАРВА́ТЫ**, -аў, *адз.* -ва́т, -а, *М* -ва́це, *м.* Паўднёваславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Харватыі. ‖ *ж.* **харва́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **харва́цкі**, -ая, -ае.

**ХА́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Кашляючы, выплёўваць макроту. *Х. крывёю.* ‖ *аднакр.* **ха́ркнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **ха́рканне**, -я, *н.*

**ХА́РКІ**, -аў (разм.). Макрота, якая адхарквае́цца.

**ХАРКО́ТА**, -ы, *ДМ* -ко́це, *ж.* (разм.). Выплёўванне макроты.

**ХАРО́ШЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Прыгожы, прывабны. *Х. хлопец.* **2.** Які вызначаецца станоўчымі якасцямі. *Х. ён чалавек.* **3.** Добры, высакаякасны. *Харошая дарога.* **4.** Дастойны, прыстойны. *Харошая кампанія.* **5.** Дарагі, любы, мілы (у сяброўскім звароце). *А мой ты х.!* ‖ *ласк.* **харо́шанькі**, -ая, -ае (да 1 і 5 знач.).

**ХА́РТЫЯ**, -і, *мн.* -і, -тый, *ж.* **1.** Старадаўні рукапіс, а таксама матэрыял, на якім ён напісаны (спец.). *Вялікая х. вольнасцей.* **2.** Дакумент важнага грамадска-палітычнага значэння.

**ХАРУ́ГВА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** У старажытнасці: баявы вайсковы сцяг. **2.** Замацаванае на доўгім дрэўку палотнішча з вобразамі святых, якое носяць у час рэлігійных шэсцяў.

**ХАРУ́НЖЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* **1.** Казацкі афіцэрскі чын, роўны падпаручніку,

ужываецца і ў сучасных арміях некаторых краін, а таксама асоба, якая мае гэты чын. **2.** Сцяганосец у войску (гіст.).

**ХАРЧ**, -у, *мн.*, -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Тое, што спажываюць, чым жывяцца, ежа. *Мясны х. Нешта ж ты змізарнеў на гарадскіх харчах.* **2.** Корм для жывёлы. *Нарыхтаваць харчу жывёле на зіму.* **3.** *перан.* Тое, што з'яўляецца крыніцай роздуму, разважанняў. *Даць х. для мозгу.* ◊ **На харчах святога Антонія** (разм., жарт.) — недаядаючы, галадаючы. ‖ *прым.* **харчо́вы**, -ая, -ае.

**ХАРЧАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* харчавацца, харчаваць. **2.** Паступленне і засваенне пажыўных рэчываў, неабходных для жыццядзейнасці жывога арганізма. **3.** Тое, чым хто-н. харчуецца; характар, якасць ежы. *Дыетычнае х.* **4.** Прыпасы прадуктаў. *Сяляне дзяліліся з партызанамі харчаваннем.* ○ **Грамадскае харчаванне** — сістэма забеспячэння насельніцтва ежай праз сталовыя, рэстараны, закусачныя і інш. ‖ *прым.* **харчава́льны**, -ая, -ае. *Х. пункт.*

**ХАРЧАВА́ЦЦА**, -чу́юся, -чу́ешся, -чу́ецца; -чу́йся; *незак.* **1.** Задавальняць патрэбу арганізма ў ежы; есці, карміцца. *Х. гароднінай. Заяц харчуецца капустай.* **2.** Сталавацца дзе-н. *Х. ў сталовай.* ‖ *наз.* **харчава́нне**, -я, *н.*

**ХАРЧАВА́ЦЬ**, -чу́ю, -чу́еш, -чу́е; -чу́й; *незак., каго-што.* Даваць, дастаўляць каму-н. ежу; карміць. *Х. усю сям'ю.* ‖ *наз.* **харчава́нне**, -я, *н.*

**ХАРЧАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Работнік харчовай прамысловасці.

**ХАРЧБЛО́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Харчовы блок (у 3 знач.).

**ХАРЧО́**, *нескл., н.* Каўказская страва з бараніны з вострымі прыправамі.

**ХАРЧЭ́ЎНЯ**, -і, *мн.* -і, -чэ́вень *і* -чэ́ўняў, *ж.* Сталовая, закусачная, шынок з таннымі і простымі стравамі.

**ХАРЫ́ЗМА**, -ы, *ж.* Выключная абаяльнасць каго-н., асаблівая здольнасць уздзеяння на навакольных. *Чалавек з магутнай харызмай.*

**ХАРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спявак, артыст хору. ‖ *ж.* **хары́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ХА́РЫУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прэснаводная рыба сямейства ласосяў.

**ХАРЭАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Мастацтва танца, а таксама пастаноўка балетных танцаў. ‖ *прым.* **харэаграфі́чны**, -ая, -ае.

**ХАРЭ́Й**[1], -я, *мн.* -рэ́і, -рэ́яў, *м.* Двухскладовая вершаваная стапа з націскам на першым складзе ў сілаба-танічным вершаскладанні. ‖ *прым.* **харэі́чны**, -ая, -ае.

**ХАРЭ́Й**[2], -я, *мн.* -рэ́і, -рэ́яў, *м.* Доўгі шост для кіравання запрэжкамі аленяў або сабак.

**ХАРЭО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па харэаграфіі.

**ХА́ТА**, -ы, *ДМ* ха́це, *мн.* -ы, хат, *ж.* **1.** Жылая сялянская пабудова, зрубленая з бярвення. **2.** Унутраная частка такой пабудовы. *Х. была чыста прыбрана. За чысцінёй у хаце сочаць, але ад парога хаты не мятуць* (з нар.). **3.** Асобны сялянскі двор, гаспадарка; асобная сям'я. *Пасёлак у дваццаць хат.* ‖ *памянш.* **ха́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **ха́тні**, -яя, -яе (да 1 і 2 знач.). *Хатнія дзверы. Хатнія рэчы. Хатняя работа.*

**ХА́ТНІ**, -яя, -яе. **1.** *гл.* хата. **2.** Прыватны, сямейны. *Х. настаўнік.* **3.** Просты, свойскі. **4.** Прыручаны, не дзікі. *Хатнія жывёлы і птушкі.* **5.** *у знач. наз.* **ха́тнія**, -іх. Члены сям'і. *Атрымаў ліст ад сваіх хатніх.*

**ХА́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (гіст.). Культурна-асветніцкі работнік на вёсцы, загадчык хаты-чытальні.

**ХАТУ́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* (разм.). Вялікі клунак рэчаў, звязаных у хустку, посцілку і пад., які звычайна носяць за плячамі.

**ХА́ЎКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Хапаць паветра раскрытым ротам; цяжка дыхаць. *Хворы ледзь хаўкае.* **2.** Пазяхаць. ‖ *аднакр.* **ха́ўкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **ха́ўканне**, -я, *н.*

**ХАЎРУ́С**, -у, *м.* (разм.). **1.** Група людзей, звязаных агульнымі мэтамі, інтарэсамі. **2.** Саюз, садружнасць. *Маці была ў хаўрусе з суседкай.* ‖ *прым.* **хаўру́сны**, -ая, -ае.

**ХАЎРУСАВА́ЦЬ**, -су́ю, -су́еш, -су́е; -су́й; *незак.* (разм.). Быць у хаўрусе з кім-н.

**ХАЎРУ́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Саўдзельнік у якой-н. справе, у хаўрусе. ‖ *ж.* **хаўру́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **хаўру́сніцкі**, -ая, -ае.

**ХАЎТУ́РЫ**, -ту́р (разм.). **1.** Абрад пахавання нябожчыка. *Справіць х.* **2.** Жалобны стол па нябожчыку. ‖ *прым.* **хаўту́рны**, -ая, -ае.

**ХА-ХА́** *і* **ХА-ХА-ХА́**, *выкл. гукаперайм.* Служыць для перадачы гучнага смеху, рогату.

**ХА́ХАНЬКІ**, -аў. Жартачкі, смешкі. *Табе ўсё х.*

**ХАХУ́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, -ху́ль, *ж.* Вадзяная жывёліна атрада насякомаедных з каштоўным футрам бура-шэрага колеру, а таксама футра гэтага звярка. ‖ *прым.* **хахулёвы**, -ая, -ае.

**ХАЦЕ́ННЕ**, -я, *н.* Жаданне. *На хаценне ёсць цярпенне* (прыказка).

**ХАЦЕ́ЦЦА**, хо́чацца; *безас., незак., чаго, з інф.* і *са злуч.* «каб». Адчуваць патрэбу ў чым-н., вельмі жадаць чаго-н. *Яму хацелася есці.*

**ХАЦЕ́ЦЬ**, хачу́, хо́чаш, хо́ча; хаці́; *незак.* **1.** *чаго, каго-што, з інф., са злуч.* «каб» і *без дап.* Мець жаданне, ахвоту да чаго-н., адчуваць патрэбу ў кім-, чым-н. *Х. спаць.* **2.** *каго-чаго, чаго ад каго* і *са злуч.* «каб». Імкнуцца да чаго-н., дамагацца чаго-н. *Хачу, каб не хварэлі дзеці. Хачу, каб людзі жылі мірна.* **3.** *з інф.* Мець намер зрабіць што-н. *Ён хацеў рамантаваць абутак.* **4.** *з інф.* Ужыв. для абазначэння магчымасці, імавернасці ажыццяўлення чаго-н. (разм.). *Хочаш — гуляй, а хочаш — спі.* **5.** З адноснымі займеннікамі і прыслоўямі ўтварае спалучэнні са знач. азначальнасці: кожны, усякі (прадмет, месца, час і пад.). *Ён рабіў, што хацеў, хадзіў, куды хацеў.*

**ХАЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* Убогая, старая хата. ‖ *памянш.* **хаці́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**ХАЦЯ́** (разм.). **1.** *злуч. уступальны.* Падпарадкоўвае даданыя ўступальныя сказы, выступаючы са знач.: нягледзячы на тое, што. *Сонца грэла моцна, х. была ўжо восень.* **2.** *часц. ўзмацн.-вылуч.* Ужыв. са знач.: самае меншае, ва ўсякім выпадку. *Вы ж х. не спазняйцеся.* **3.** *часц. узмацн.-абмежавальная* (звычайна ў спалучэнні з часціцай «б»). Ужыв. са знач.: нічога больш, акрамя гэтага, усяго толькі. *Х. б глыточак вады глынуць.*

**ХВАЁВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* хвоя. **2.** *у знач. наз.* **хваёвыя**, -ых. Сямейства голанасенных дрэў і кустоў, пераважна вечназялёных.

**ХВАІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, хваі́н, *ж.* Тое, што і *хвоя* (у 1 знач.); адно дрэва хвоі.

**ХВАЛА́**, -ы́, *ж.* **1.** Пахвала, адабрэнне, усхваленне. *Х. пра выдатную ткачыху разышлася па краіне.* **2.** *у знач. вык.* Воклік захаплення, удзячнасці, прызнання каму-, чаму-н. *Х. працаўнікам палёў.* **3.** Агульнапрынятая думка пра каго-н., рэпутацыя (разм.).

**ХВАЛЕ...** (а таксама **хваля...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. хваля (у 1 і 2 знач.), напр.: *хвалепадобны, хвалеўтваральнік.*

**ХВАЛЕ́БНЫ**, -ая, -ае. У якім ёсць пахвала. *Хвалебная рэцэнзія. Х. водзыў.* ‖ *наз.* **хвале́бнасць**, -і, *ж.*

**ХВА́ЛІСТЫ**, -ая, -ае. Падобны на хвалі, на паверхню вады, пакрытую хвалямі. ‖ *наз.* **хва́лістасць**, -і, *ж.*

**ХВАЛІ́ЦЦА**, хвалю́ся, хва́лішся, хва́ліцца; *незак.* Расхвальваць свае поспехі, заслугі; з пахвальбой расказваць пра свае ўчынкі, дасягненні і пад. *Ён любіць х. Х. поспехамі.* ‖ *зак.* **пахвалі́цца**, пахвалю́ся, пахва́лішся, пахва́ліцца.

**ХВАЛІ́ЦЬ**, хвалю́, хва́ліш, хва́ліць; хва́лены; *незак., каго-што.* Выказваць адабрэнне, пахвалу каму-, чаму-н. за што-н. *Х. вучня за выдатныя поспехі.* ‖ *зак.* **пахвалі́ць**, пахвалю́, пахва́ліш, пахва́ліць; пахва́лены. ‖ *наз.* **хвале́нне**, -я, *н.*

**ХВАЛЬБА́**, -ы́, *ж.* **1.** Празмернае расхвальванне сваіх вартасцей, заслуг, учынкаў, часта перабольшаных. **2.** Адабрэнне, пахвала каму-н.

**ХВАЛЬКО́**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.; нескл., ж.* Той, хто любіць хваліцца.

**ХВА́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, хваль, *ж.* **1.** Вадзяны вал, які ўтвараецца ад гайдання паверхні вады. *Хвалі залівалі бераг мора.* **2.** Хістальны рух у фізічным асяроддзі ці электрамагнітным полі (спец.). *Электрамагнітныя хвалі. Гукавая х.* **3.** *перан., чаго.* Пра масу, плынь чаго-н., што рухаецца адно за адным з пэўнымі інтэрваламі, перапынкамі. **4.** *перан., чаго.* Узмоцнены рух,

праяўленне чаго-н. *Х. дэманстрацый. Х. мітынгаў.* || *прым.* **хва́левы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ХВАЛЯ...** (гл. **хвале...**). Першая састаўная частка складаных слоў, пішацца, калі націск у другой частцы падае на першы склад, напр.: *хвалярэз, хвалямер.*

**ХВАЛЯВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Рух хваль па вадзяной паверхні. *Х. мора.* **2.** *перан.* Нервовая ўзбуджанасць, выкліканая адчуваннем трывогі, радасці і пад. *Х. доўга не пакідала жанчыну.* **3.** звычайна *мн.*, -і, -яў, *перан.* Масавае выказванне незадаволення, пратэсту супраць чаго-н. *Хваляванні незадаволеных.*

**ХВАЛЯВА́ЦЦА**, -лю́юся, -лю́ешся, -лю́ецца; -лю́йся; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Быць у хваляванні (у 1 знач.). *Мора хвалюецца.* **2.** *перан.* Перажываць хваляванне (у 2 знач.), знаходзіцца ў трывожным стане. *Х. перад экзаменамі.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Выказваць пратэст супраць чаго-н., масавую незадаволенасць чым-н. *Натоўп хваляваўся.* || *зак.* **усхвалява́цца**, -лю́юся, -лю́ешся, -лю́ецца; -лю́йся.

**ХВАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; *незак.* **1.** *што.* Выклікаць хваляванне (у 1 знач.). *Моцны вецер хваляваў мора.* **2.** *перан., каго (што).* Прыводзіць у хваляванне (у 2 знач.). *Яго хваляваў лёс дзяцей.* **3.** *перан., каго (што).* Падбухторваць, схіляць да хваляванняў (у 3 знач.). *Х. народ.* || *зак.* **усхвалява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й.

**ХВАЛЯВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Натуральны або штучны канал для распаўсюджвання тых ці іншых хваль (гукавых, электрамагнітных, радыёхваль і інш.). || *прым.* **хвалявó дны**, -ая, -ае.

**ХВАЛЯЛО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гідратэхнічнае збудаванне (дамба, вал і пад.) для загароджвання рэйда[1], гавані, берагавых участкаў ад дзеяння хваль. || *прым.* **хвалялóмны**, -ая, -ае.

**ХВАЛЯМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У радыётэхніцы: прыбор для вымярэння даўжыні электрамагнітных хваль або частаты электрамагнітных ваганняў. **2.** У марской справе: прыбор для вызначэння вышыні, даўжыні і перыяду, а таксама хуткасці і напрамку распаўсюджання марскіх хваль. || *прым.* **хвалямéрны**, -ая, -ае.

**ХВАЛЯРЭ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *хвалялом.* || *прым.* **хвалярэ́зны**, -ая, -ае.

**ХВАРАВІ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які часта хварэе, схільны да хваробы. *Х. хлопчык.* **2.** Які з'явіўся ў выніку хваробы, які сведчыць аб хваробе. *Х. выгляд. Х. стан.* **3.** Выкліканы болем. *Х. стогн.* **4.** *перан.* Перабольшаны, празмерны, ненатуральны. *Хваравітая падазронасць.* || *наз.* **хваравíтасць**, -і, *ж.*

**ХВАРО́БА**, -ы, *мн.* -ы, -ро́б, *ж.* **1.** Парушэнне нармальнай дзейнасці арганізма, недамаганне. **2.** *перан.* Дрэнная схільнасць да чаго-н.; недахоп. *Гультайства — гэта х.* || *прым.* **хваро́бны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Хваробныя мікробы.*

**ХВАРОБАТВО́РНЫ**, -ая, -ае. Які выклікае хваробу. *Х. вірус.* || *наз.* **хваробатво́рнасць**, -і, *ж.*

**ХВАРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* **1.** *на што, чым* і *без дап.* Быць хворым на якую-н. хваробу. *Х. на туберкулёз. Х. шкарлятынаю. Ён доўга хварэў.* **2.** *перан., за каго-што.* Трывожыцца, непакоіцца аб кім-, чым-н. *Х. за работу.* **3.** *на што.* Мець дрэнную схільнасць да чаго-н. *Х. на гультая.* **4.** *перан., за каго-што.* Хвалявацца за чые-н. поспехі (спартсмена, спартыўнай каманды, артыста і пад.; разм.). *Х. за сваю каманду.* ◊ **Хварэць на пана** — 1) доўга спаць, вылежвацца; 2) весці сябе высакамерна, фанабэрыста, выяўляючы нечаканыя звычкі, імкненне да раскошы і пад.

**ХВАСТА́ТЫ**, -ая, -ае. З хвастом (у 1 знач.) або з вялікім ці густым хвастом. *Хвастатая лісіца. Хвастатая камета.*

**ХВАСТА́ЦЬ**, хвашчу́, хво́шчаш, хво́шча; хвашчы́; хваста́ны; *незак.* **1.** *каго-што* і *па чым.* Біць чым-н. гнуткім; сцябаць. *Х. дубцом.* **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *каго-што, па чым* і *без дап.* З сілай біць, сячы (пра вецер, снег, дождж і пад.). *Дождж хвошча па твары.* || *зак.* **вы́хвастаць**, -вашчу, -вашчаш, -вашча; -вашчы; -вастаны (да 1 знач.; разм.). || *аднакр.* **хвастану́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́; **хво́снуць**, -ну, -неш, -не; -ні *і* **хвасяну́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, хвасеняцé, -ну́ць; -ні́ (разм.). || *звар.* **хваста́цца**, хвашчу́ся, хво́шчашся, хво́шчацца; хвашчы́ся (да 1 знач.). || *наз.* **хваста́нне**, -я, *н.*

**ХВАСЦЭ́Ц**, -стца́, *мн.* -стцы́, -стцо́ў, *м.* Ніжняя частка пазваночніка чалавека. || *прым.* **хвастцо́вы**, -ая, -ае. *Х. пазванок.*

**ХВАТ**, -а, *М* хва́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Бойкі, спрытны чалавек.

**ХВАТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *хапальны. Х. рух.*

**ХВАТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* (разм.). Тое, што і *хапацца.* || *зак.* **хва́ціцца**, хвачу́ся, хва́цішся, хва́ціцца.

**ХВАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., каго-што* (разм.). Тое, што і *хапа́ць* (у 1—4 знач.). || *аднакр.* **хватану́ць**, -ну́, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -ну́ць; -ні́. || *зак.* **хваці́ць**, хвачу́, хва́ціш, хва́ціць. || *наз.* **хвата́нне**, -я, *н.*

**ХВА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Спосаб, прыём, якім хапаюць, схопліваюць што-н. **2.** *перан.* Аб спрыце і хуткасці ў рабоце, дзеянні. *Учэпістая х.*

**ХВА́ТКІ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які спрытна, учэпіста хапае што-н. *Хваткія рукі.* **2.** *перан.* Спрытны, кемлівы. *Х. хлопец.* || *наз.* **хва́ткасць**, -і, *ж.*

**ХВА́ЦКІ**, -ая, -ае. **1.** Удалы, спрытны. *Х. хлопец.* **2.** Вельмі добры, прыдатны для выкарыстання (разм.). *Х. ножык.* || *наз.* **хва́цкасць**, -і, *ж.*

**ХВІЛІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -лі́н, *ж.* **1.** Мера часу, роўная 1/60 гадзіны ці 60 секундам. *Чакаем дваццаць хвілін.* **2.** Кароткі прамежак часу, імгненне. *Зайдзі на хвіліну, ёсць справа. Хвілінай веку не надточыш* (прыказка). || *памянш.-ласк.* **хвілі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* || *прым.* **хвілі́нны**, -ая, -ае.

**ХВО́ЙНІК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Хваёвы лес. *У хвойніку было многа грыбоў.*

**ХВО́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* хвоя. **2.** Які замест лісця мае іголкі. *Хвойныя пароды дрэў.*

**ХВО́РАСТ**, -у, *М* -сце, *м., зб.* Сухія галінкі, апаўшыя з дрэў або хмызняку. *Прапаліць печ хворастам.*

**ХВО́РАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* (разм.). Хвароба, недамаганне, хваравіты стан. *Х. напала на чалавека.*

**ХВО́РЫ**, -ая, -ае. **1.** Які хварэе на якую-н. хваробу. *Х. дзед. Хворае дзіця.* **2.** Пашкоджаны хваробай (пра цела і яго часткі). *Хворае сэрца. Хворыя ногі.* **3.** Які сведчыць аб хваравітым стане, аб хваробе. *Х. выгляд.* **4.** Ненатуральны, празмерны, ненармальны. *Хворае ўяўленне.* **5.** *у знач. наз.* **хво́ры**, -ага, *м.*, **хво́рая**, -ай, *ж.*, *мн.* **хво́рыя**, -ых. Чалавек, які хварэе (у 1 знач.). *Прыём хворых.*

**ХВОСТ**, хваста́, *М* хвасцэ́, *мн.* хвасты́, хвасто́ў, *м.* **1.** У жывёл: звычайна рухомы прыдатак на задняй частцы цела або значна звужаная задняя частка цела. *Конскі х. Х. яшчаркі. Птушыны х.* **2.** Задняя, канцавая частка лятальнага апарата (самалёта, ракеты і пад.). *Х. самалёта.* **3.** Задняя частка падола адзежы, якая цягнецца па зямлі (разм.). *Х. сукенкі.* **4.** Канцавая частка чаго-н., што рухаецца. *Х. калоны. Х. цягніка.* **5.** Крайняя, ніжняя частка чаго-н. *Х. рэдзькі.* **6.** Доўгая звілістая паласа (дыму, пылу і пад.). *З трубы падымаўся х. дыму.* **7.** Рад людзей, якія стаяць у чарзе за чым-н. (разм.). *Х. у касу за білетамі.* **8.** *перан.* Частка работы, не выкананая ў тэрмін; няздадзены экзамен або залік у час сесіі (разм.). *Х. па матэматыцы.* **9.** Рэшткі ад апрацоўкі пароды з карысным выкапнем (спец.). || *памянш.* **хво́сцік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 1 і 3—6 знач.). || *прым.* **хваставы́**, -а́я, -о́е (да 1, 2, 4, 5 і 9 знач.).

**ХВО́СТКІ**, -ая, -ае. Які моцна хвошча, сцябае. *Хвосткая пуга.*

**ХВО́СЦІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* хвост. **2.** Кончык, частка чаго-н., якая выступае. *Яблык з хвосцікам.* ◊ **З хвосцікам** (разм.) — з лішкам, з невялікім дадаткам. *Тры гады з хвосцікам.*

**ХВОШЧ**, хвашчу́, *мн.* хвашчы́, хвашчо́ў, *м.* Шматгадовая споравая расліна сямейства хвашчовых з зялёнымі, звычайна галінастымі сцёбламі і лускаватым лісцем. || *прым.* **хвашчо́вы**, -ая, -ае.

**ХВО́Я**, -і, *мн.* -і, хвой, *ж.* **1.** Вечназялёнае дрэва сямейства хваёвых з высокім прамым ствалом і доўгай ігліцай; сасна. *Стромкія хвоі ўзнімаліся ў неба.* **2.** *зб.* Ігліца (разм.). *У лесе зямля была ўсыпана хвояй.* **3.** Галінка хвойнага дрэва. || *прым.* **хваёвы**, -ая, -ае *і* **хво́йны**, -ая, -ае. *Хваёвыя шышкі. Х. лес.*

**ХЕ́ДАР**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочая частка збожжаўборачнага камбайна.

**ХЕ́ДАР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Яўрэйская пачатковая рэлігійная школа для хлопчыкаў.

**ХЕК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Марская прамысловая рыба сямейства трасковых. ‖ *прым.* **хе́кавы**, -ая, -ае.

**ХЕ́РАС**, -у, *м.* Гатунак белага моцнага вінаграднага віна.

**ХЕРУВІ́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У хрысціянскай рэлігіі: анёл, які адносіцца да ліку вышэйшых анёлаў. ‖ *прым.* **херуві́мскі**, -ая, -ае.

**ХЕТ-ТРЫ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У выразе: **зрабіць хет-трык** — тройчы паразіць вароты праціўніка ў адной гульні адным і тым жа спартсменам (у хакеі, футболе).

**ХЕ́ЎРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* (пагард.). Група людзей, якія аб'ядналіся для разбою, злачынства; зграя, шайка, банда. *Сабралася х.*

**ХІБ**, хіба, *мн.* хібы́, -о́ў, *м.* **1.** Пярэдняя частка хрыбта свінні. *Самае тоўстае сала ў свінні на хібе.* **2.** Шчаціннне на хрыбце. **3.** Спінны плаўнік у рыбы. **4.** *перан.* Верхні край, грэбень чаго-н. *Х. страхі. Х. хвалі. Х. пракоса.*

**ХІ́БА**[1], -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Памылка, промах, недахоп. *Хібы ў рабоце.* **2.** Пра фізічны недахоп. *Х. яго была ў тым, што ён кульгаў.*

**ХІ́БА**[2], *часц.* **1.** Ужыв. ў пытальных сказах, якія выражаюць сумненне ў чым-н., недавер, здзіўленне чым-н. і па знач. блізкія да слоў «няўжо», «можа быць». *Х. ён ужо прыехаў? Х. я не так сказаў?* **2.** Ужыв. ў пытальных сказах для выказвання няўпэўненасці ў неабходнасці якога-н. дзеяння і блізкая па знач. словам «можа быць», «не варта». *Х. мне паехаць туды? Х. можна каго прымусіць рабіць што-небудзь?* **3.** (звычайна ў спалучэнні са словамі «толькі», «што»). Надае адценне абмежаванасці, дапушчэння, магчымасці чаго-н. *Х. толькі заўтра ён прыедзе.*

**ХІ́БА**[3], *злуч.* **1.** *уступальна-абмежавальны.* Ужыв. ў спалучэнні са словамі «толькі», «што» і без іх для выражэння абмежавання ў знач.: акрамя таго, што...; можа быць, толькі... *Вакол цішыня, х. толькі шпак засвішча.* **2.** *умоўны.* Ужыв. для выражэння супрацьпастаўлення з адценнем умоўнасці ў знач.: калі не..., калі толькі не... *Работу закончым, х. толькі дождж перашкодзіць.*

**ХІ́БА**[4], *выкл.* Ужыв. з пытальнай інтанацыяй і выражае сумненне, недавер. — *Я вас ведаю. — Х.!*

**ХІБА́**[1], *часц.* Тое, што і хіба[2].

**ХІБА́**[2], *злуч.* Тое, што і хіба[3].

**ХІ́БІЦЬ**, хіблю, хібіш, хібіць; *незак.* (разм.). **1.** Дапускаць пралікі, недакладнасці, рабіць памылкі. **2.** *перан.* Баяцца каго-н., губляцца перад кім-, чым-н. *Перад кім хібіў старшыня, дык гэта перад начальствам.*

**ХІ́БНАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** Памылка, няправільнасць, недакладнасць. **2.** Розніца паміж сапраўднай велічынёй чаго-н. і велічынёй, атрыманай пры вымярэнні; адхіленне ад зададзенай велічыні; недакладнасць (спец.). *Абсалютная х. Адносная х.*

**ХІЛІ́ЦЦА**, хілюся, хі́лішся, хі́ліцца; *незак.* **1.** Прыгінацца ўніз, нахіляцца, нагінацца. *Да вады хіліліся вербы. Буйныя каласы хіліліся да зямлі.* **2.** Нахіляцца набок. *Судна пачало х. на той бок, дзе была прабоіна.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан., да чаго.* Набліжацца да чаго-н., да якой-н. мяжы. *Кароткі снежаньскі дзень хіліўся да вечара. Час хіліўся да восені.* **4.** *перан., перад кім-чым.* Здавацца, пакарацца. *Не нам х. перад цяжкасцямі.* **5.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Накіроўвацца, ісці да чаго-н. (пра гутарку, справы, учынкі і пад.). *Было відавочна, куды хіляцца падзеі. Справа хіліцца ў патрэбным напрамку.* **6.** Туліцца, гарнуцца да каго-н. *Хлопчык хіліўся да матулі.* **7.** *перан.* Мець цягу, сімпатыю да каго-н. *Сын больш хіліўся да бацькі, чым да маці.*

**ХІЛІ́ЦЬ**, хілю́, хі́ліш, хі́ліць; *незак.* **1.** *што.* Прыгінаць уніз, нахіляць. *Вецер хіліць бярозку да зямлі.* **2.** *што.* Нахіляць набок. *Вецер хіліў лодку.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *каго-што* і *безас.* Ахопліваць, адольваць каго-н. (пра сон, дрымоту). *Яго хіліць сон. Дзяцей хіліла на дрымоту.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан., на што.* Хіліцца, набліжацца да чаго-н. *Хіліла* (безас.) *ужо на вечар.* **5.** *перан., што да чаго, куды* і *без дап.* Накіроўваць да чаго-н. (думку, справу і пад.). *Было зразумела, куды ён хіліць гутарку.* **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан., каго да каго-чаго.* Прыцягваць, вабіць; гарнуць, цягнуць. *Сумны настрой не хіліў да песень. Яго хіліла* (безас.) *да навукі.*

**ХІ́ЛЫ**, -ая, -ае (разм.). Слабы, хваравіты. *Хілае дзіця. Хілая расліна.* ‖ *наз.* **хі́ласць**, -і, *ж.*

**ХІМ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. хімічны, напр.: *хімапаратура, хімвалакно, хімзавод, хімкамбінат, хімсыравіна.*

**ХІМЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ме́р, *ж.* **1.** У старажытнагрэчаскай міфалогіі — пачвара з ільвінай галавой, казліным тулавам і хвастом дракона, а таксама скульптура гэтай пачвары ў сярэдневяковым мастацтве. **2.** Неажыццявімая, нязбытная і дзіўная мара (кніжн.). ‖ *прым.* **хімеры́чны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Хімерычная ідэя; наз.* **хімеры́чнасць**, -і, *ж.*

**ХІМІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., што.* Укараніць (укараняць) дасягненні хіміі і хімічных метадаў апрацоўкі рэчываў у тэхніцы, прамысловасці і сельскай гаспадарцы. ‖ *наз.* **хімізá́цыя**, -і, *ж.*

**ХІ́МІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне хіміі, а таксама работнік хімічнай прамысловасці.

**ХІМІКА́ЛІІ**, -яў. Хімічныя прэпараты, вырабы.

**ХІМІКА́Т**, -у, *М* -ка́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Хімічны прэпарат, выраб.

**ХІМІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* хімія. **2.** Які мае адносіны да з'яў, што вывучаюцца хіміяй. *Хімічная рэакцыя. Хімічныя элементы.* **3.** Звязаны з прымяненнем метадаў хіміі ў вытворчасці, у розных галінах гаспадаркі. *Хімічная апрацоўка глебы. Хімічныя ўгнаенні.* **4.** Звязаны з прымяненнем прадуктаў хіміі ў ваенных мэтах. *Хімічная зброя.* ○ **Хімічны карандаш** — карандаш з асобым графітам, які пры змочванні піша як чарніла.

**ХІ́МІЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука аб складзе, будове, уласцівасцях рэчываў і іх узаемных ператварэннях. *Неарганічная х. Фізічная х.* **2.** Якасны склад чаго-н., атрыманы пры дапамозе спецыяльных метадаў і сродкаў. *Х. крыві. Х. нафты.* ‖ *прым.* **хімі́чны**, -ая, -ае.

**ХІМІЯ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. хімічны, напр.: *хіміяпрэпараты, хіміясінтэз, хіміятэрапія.*

**ХІ́НА**, -ы, *ж.* Тое, што і *хінін.* ‖ *прым.* **хі́нны**, -ая, -ае. *Х. парашок. Хіннае дрэва* (дрэва, кара якога ўтрымлівае хінін).

**ХІ́НДЗІ**, *нескл., ж.* Індаеўрапейская мова індыйскай групы, дзяржаўная мова Індыі.

**ХІНІ́Н**, -у, *м.* Белы, горкі на смак парашок з кары хіннага дрэва, выкарыстоўваецца ў медыцыне.

**ХІНУ́ЦЦА**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся; *незак.* **1.** Нахіляцца, нагінацца. *Куды вецер, туды і дрэва хінецца.* **2.** *перан.* Мець ахвоту да чаго-н., захапляцца чым-н. *Х. да навукі.* **3.** *перан.* Мець цягу да каго-н., сімпатызаваць каму-н. *Хлопчык больш хінуўся да дзеда.*

**ХІНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́, -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *незак.* **1.** *каго-што.* Нахіляць, нагінаць. **2.** *перан., каго (што).* Выклікаць прыхільнасць да сябе, схіляць на свой бок. *Яго дабрыня хінула да яго людзей.* **3.** *што да чаго, куды* і *без дап.* Накіроўваць на што-н. (думку, справу і пад.). *Было незразумела, куды ён хінуў у сваёй гутарцы.* **4.** *каго-што.* Прыхіляць, гарнуць да сябе. *Х. дзіця да грудзей.*

**ХІ́ПІ**, *нескл., м.* і *ж.* Прадстаўнік моладзі, які парваў сувязь са сваім асяроддзем і выражае пратэст супраць наяўных сацыяльных адносін, прапагандуе зварот да прыроднай чысціні праз любоў і пацыфізм.

**ХІРАМА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца хірамантыяй. ‖ *ж.* **хірама́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ХІРАМА́НТЫЯ**, -і, *ж.* Прадказанне будучага і вызначэнне характару чалавека па лініях і бугарках на далонях рук.

**ХІРУ́РГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач — спецыяліст у галіне хірургіі. *Дзіцячы х.*

**ХІРУРГІ́Я**, -і, *ж.* Галіна медыцыны, якая займаецца аперацыйнымі метадамі лячэння: злучэннем і раз'яднаннем тка-

нак арганізма. *Х. сэрца.* ‖ *прым.* **хірургі́чны**, -ая, -ае.

**ХІСТА́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* хістацца, хістаць. **2.** Няўстойлівасць, зменлівасць. *Х. тэмпературы.* **3.** *перан.* Нерашучасць, сумненне. *Прыняць рашэнне без хістання.*

**ХІСТА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Калыхацца, ківацца з боку ў бок. *Вершаліны дрэў хісталіся ад моцнага ветру. Агеньчык свечкі слаба хістаўся.* **2.** Ківацца з боку ў бок пры хадзьбе. *Конь быў такі худы, што аж хістаўся.* **3.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Калыхацца, калывацца ў бакі. *Зуб хістаецца.* **4.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Траціць ранейшае значэнне, сілу. *Аўтарытэт закона хістаецца.* **5.** *перан.* Быць у нерашучасці, вагацца. *Перад тым, як прыняць рашэнне, ён заўсёды хістаўся.* **6.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*), *перан.* Быць няўстойлівым, мяняцца. *Цэны на рынку хістаюцца.* ‖ *аднакр.* **хісну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся *і* **хістану́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няце́ся, -ну́цца; -ні́ся. ‖ *наз.* **хіста́нне**, -я, *н.*

**ХІСТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *каго-што.* Ківаць з боку ў бок. *Вецер хістае яліны.* **2.** *чым.* Рабіць хістальныя рухі чым-н. *Х. слуп.* **3.** *перан., што.* Рабіць няўстойлівым, падрываць. *Гэта хістала яго аўтарытэт.* ‖ *аднакр.* **хісну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **хіста́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **хіста́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ХІ́СТКІ**, -ая, -ае. **1.** Які хістаецца, ківаецца. *Хісткія галінкі дрэў. Х. мосцік.* **2.** *перан.* Ненадзейны, няпэўны, малапераканальны. *Хісткія довады.* **3.** *перан.* Непастаянны ў сваіх поглядах, учынках і пад. *Рэвалюцыянер з яго вельмі х.* ‖ *наз.* **хі́сткасць**, -і, *ж.*

**ХІТ**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Папулярная песня. **2.** Кніга, спектакль, канцэрт і пад., якія маюць вялікую папулярнасць. ‖ *прым.* **хіто́вы**, -ая, -ае.

**ХІТО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У старажытных грэкаў: доўгае і шырокае адзенне, часцей без рукавоў. **2.** Касцюм танцоўшчыцы класічнага балета з глыбокімі разрэзамі па баках.

**ХІТРАВА́ТЫ**, -ая, -ае. Трохі хітры або які сведчыць пра хітрасць. *Х. чалавек. Хітраватая ўсмешка.*

**ХІТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак.* Тое, што і *хітрыць.*

**ХІТРАСПЛЕ́ЦЕНЫ**, -ая, -ае. Вельмі хітры, мудрагелісты. *Хітрасплецены выказванне.*

**ХІТРАСПЛЯЦЕ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Складанае, вычварнае перапляценне чаго-н. **2.** Складаная задума; складаны і мудрагелісты выклад думак. *Моўныя хітрасплятценні. Хітрасплятценні сюжэта.*

**ХІ́ТРАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* **1.** *гл.* хітры. **2.** Учынкі, паводзіны, разлічаныя на ўвядзенне каго-н. у зман. *Разгадаць чыю-н. х.* **3.** Спрытнасць, выкрутлівасць. *Не ўменнем, дык хітрасцю.* **4.** Аб чым-н., што зроблена мудрагеліста, складана, з загадкай. *Замок з хітрасцю.*

**ХІТРУ́ГА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ру́зе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -ру́г (разм.). Вельмі хітры чалавек. *Гэта вядомы хітруга.*

**ХІТРУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Хітры чалавек; махляр, падманшчык. ‖ *ж.* **хітру́ха**, -і, *ДМ* -ру́се, *мн.* -і, -ру́х. ‖ *прым.* **хітру́нскі**, -ая, -ае.

**ХІ́ТРЫ**, -ая, -ае. **1.** Вынаходлівы, умелы, дасціпны. **2.** Выкрутлівы, які дзейнічае скрытна, не яўна. *Х. хлопец.* **3.** Які выражае дасціпнасць, спрыт, умельства. *Х. погляд. Хітрая ўсмешка.* **4.** Разлічаны на ўвядзенне каго-н. у зман. *Хітрая палітыка.* **5.** Зроблены з умельствам, выдумкай, сакрэтам. *Х. механізм.* ‖ *наз.* **хі́трасць**, -і, *ж.* (да 1 і 3 знач.).

**ХІ́ТРЫКІ**, -аў. Хітрыя, махлярскія прыёмы. *Надаелі мне твае х.*

**ХІТРЫ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; *незак.* Праяўляць хітрасць. *Не трэба х.* ‖ *зак.* **схітры́ць**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць.

**ХІТРЭ́Ц**, -раца́, *мн.* -рацы́, -рацо́ў, *м.* Хітрун, каварны чалавек, махляр, ашуканец. ‖ *прым.* **хітрэ́цкі**, -ая, -ае.

**ХІХІ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Спадцішка або ціха смяяцца. *Чаго ты хіхікаеш?* ‖ *аднакр.* **хіхі́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **хіхі́канне**, -я, *н.*

**ХЛАМ**, -у, *м., зб.* Непатрэбныя старыя рэчы. *Выкінуць х. з хаты.* ‖ *прым.* **хла́мны**, -ая, -ае.

**ХЛАМІ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -мі́д, *ж.* **1.** Адзенне старажытных грэкаў і рымлян у выглядзе плашча. **2.** Нязграбная шырокая і доўгая адзежына (разм.).

**ХЛАПЕ́Ц**, -пца́, *мн.* -пцы́, -пцо́ў, *м.* Падлетак мужчынскага полу. ‖ *памянш.-ласк.* **хлапчаня́**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н. і* **хлапчанё**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* ‖ *прым.* **хлапе́чы**, -ая, -ае *і* **хлапе́цкі**, -ая, -ае.

**ХЛАПЧО́**, -чаці, *Т* -чо́м, *н.* (разм.). Хлапец, хлопчык.

**ХЛАПЧУ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Невялікі хлапец, падлетак. ‖ *прым.* **хлапчуко́вы**, -ая, -ае. *Хлапчуковыя чаравікі.*

**ХЛАПЧЫ́НА**, -ы, *Д* -ну, *М* -не, *мн.* -ы, -чы́н *і* -аў, *м.* (разм.). Малады чалавек, дзяцюк. *Рослы, плячысты х.*

**ХЛАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак., што.* **1.** Абеззаразіць (абеззаражваць) пры дапамозе хлору. *Х. ваду.* **2.** Увесці (уводзіць) хлор у малекулы арганічнага ці неарганічнага рэчыва (спец.). *Х. этан.* ‖ *наз.* **хларава́нне**, -я, *н.*

**ХЛАРАФІ́Л**, -у, *м.* Зялёны пігмент раслін. ‖ *прым.* **хларафілавы**, -ая, -ае.

**ХЛАРАФО́РМ**, -у, *м.* Празрыстая лятучая вадкасць з саладкаватым пахам, якая ўтрымлівае хлор. ‖ *прым.* **хларафо́рмавы**, -ая, -ае.

**ХЛАРАФО́С**, -у, *м.* Белае крышталічнае ядавітае рэчыва, якое выкарыстоўваецца ў барацьбе са шкоднымі насякомымі. ‖ *прым.* **хларафо́сны**, -ая, -ае.

**ХЛАРО́З**, -у, *м.* (спец.). **1.** Адна з форм малакроўя, анемія. **2.** Хвароба раслін, пры якой парушаецца ўтварэнне хларафілу і лісце жаўцее. ‖ *прым.* **хларо́зны**, -ая, -ае.

**ХЛАРЫ́ДЫ**, -аў, *адз.* хлары́д, -у, *М* -дзе, *м.* (спец.). **1.** Злучэнні хлору з іншымі элементамі. *Хларыд натрыю.* **2.** Мінералы, солі салянай кіслаты, якія шырока выкарыстоўваюцца ў хімічнай і харчовай прамысловасці. ‖ *прым.* **хлары́дны**, -ая, -ае.

**ХЛАРЫ́ТЫ**, -аў, *адз.* хлары́т, -у, *М* -ры́це, *м.* (спец.). **1.** Група слюдападобных мінералаў зеленаватага колеру, якія ўтрымліваюць хлорыстыя злучэнні. **2.** Солі хлорыстай кіслаты. ‖ *прым.* **хлары́тавы**, -ая, -ае.

**ХЛАРЭ́ЛА**, -ы, *ж.* (спец.). Аднаклетачная зялёная водарасць.

**ХЛЕБ**, -а, *мн.* хлябы́, хлябо́ў, *м.* **1.** толькі *адз.* Прадукт харчавання, які выпякаецца з мукі. *Чорны х. Сітны х. Пшанічны х.* **2.** толькі *адз.* Зерне, якое мелецца на муку. *Нарыхтоўка хлеба. Уборка хлеба. Х. — усяму галава* (прыказка). **3.** Зерневыя расліны (жыта, пшаніца і пад.) на корані. *Добра ўрадзіў хлеб. Хлябы ў рост чалавека.* **4.** толькі *адз., перан.* Сродкі для існавання, заробак. *Цяжкай працай здабываць свой х. Адабраць чужы х.* ◊ **Аб адным хлебе** (разм.) — у нястачы, адчуваючы недахоп у ежы. **Без хлеба сядзець** (разм.) — быць незабяспечаным сродкамі для існавання. **Жыць на ласкавым хлебе** (разм.) — жыць на чыім-н. утрыманні, з чыёй-н. ласкі. **Зайцаў хлеб** — рэшткі яды, прывезеныя з поля, з лесу дзецям. **І то хлеб** (разм.) — і гэта добра. **Лёгкі хлеб** (разм.) — пра лёгкую, бестурботную працу. **Надзённы хлеб** — тое, што патрэбна для жыцця. **Не вялікі хлеб** (разм.) — 1) не вельмі добра; 2) невысокая аплата працы, не зусім забяспечаныя ўмовы жыцця. **Пасадзіць на хлеб і ваду** (разм.) — пакараць голадам, абмежаваць у ядзе каго-н. **Хлеб ды соль** (разм.) — прыемнага, добрага апетыту (пажаданне таму, каго засталі за ядой). **Цяжкі хлеб** (разм.) — праца, якая патрабуе вялікіх намаганняў, цяжкая фізічная праца. ‖ *памянш.-ласк.* **хлябо́к**, -бка́, *м.* (да 1—3 знач.). ‖ *прым.* **хле́бны**, -ая, -ае (да 1—3 знач.).

**ХЛЕБАБУ́ЛАЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да хлебных вырабаў. *Хлебабулачнае прадпрыемства.*

**ХЛЕБАЗАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Завод з механічнай выпечкай хлеба. ‖ *прым.* **хлебазаво́дскі**, -ая, -ае.

**ХЛЕБАЗДА́ЧА**, -ы, *ж.* Планавая здача збожжа дзяржаве сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі.

**ХЛЕБАПАСТА́ЎКІ**, -та́вак, *адз.* хлебапаста́ўка, -і, *ж.* Планавая здача збожжа дзяржаве.

**ХЛЕБАПЁК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *пекар.*

**ХЛЕБАПЯКА́РНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з пячэннем хлеба, хлебных вырабаў. *Хлебапякарная прамысловасць.*

**ХЛЕБАПЯКА́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -рняў, *ж.* Тое, што і *пякарня.*

**ХЛЕБАПЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Выпечка хлеба. *Механізаванае х.*

**ХЛЕБАРО́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца хлебаробствам. ‖ *прым.* **хлебаро́бскі**, -ая, -ае.

**ХЛЕБАРО́БСТВА**, -а, *н.* Праца земляроба па вырошчванні хлеба (у 3 знач.). ‖ *прым.* **хлебаро́бчы**, -ая, -ае.

**ХЛЕБАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. Які дае добры ўраджай хлеба; урадлівы. *Х. год. Х. край.*

**ХЛЕБАРЭ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочы, заняты рэзкай хлеба. ‖ *ж.* **хлебарэ́зка**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак.

**ХЛЕБАРЭ́ЗКА**, -і, *ДМ* -зцы, *мн.* -і, -зак, *ж.* **1.** *гл.* хлебарэз. **2.** Прыстасаванне для рэзкі хлеба.

**ХЛЕБАРЭ́ЗНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для рэзкі хлеба. *Х. стол.*

**ХЛЕБАСО́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Гасцінны чалавек, які ветліва сустракае і частуе гасцей. *Ён быў вялікі х.* ‖ *ж.* **хлебасо́лка**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак. ‖ *прым.* **хлебасо́льскі**, -ая, -ае.

**ХЛЕБАСО́ЛЬСТВА**, -а, *н.* Гатоўнасць і ўменне гасцінна сустрэць і пачаставаць. *Беларускае х.* ‖ *прым.* **хлебасо́льны**, -ая, -ае.

**ХЛЕ́БНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** Від талеркі, падноса, на якіх падаюць на стол хлеб. **2.** Невялікая скрынка для захавання хлеба. **3.** Спецыяльная дзежка, у якой рашчыняюць хлеб.

**ХЛЕЎ**, хлява́, *мн.* хлявы́, хляво́ў, *м.* Памяшканне для жывёлы і хатніх птушак. ‖ *памянш.* **хле́ўчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м. і* **хлевушо́к**, -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.*

**ХЛЁБАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., што* (разм.). **1.** Есці, чэрпаючы лыжкай вадкую страву. *Х. суп.* **2.** Піць вялікімі глыткамі. *Ён з прагнасцю хлёбае ваду.* ‖ *аднакр.* **хлёбнуць**, -ну, -неш, -не; -ні *і* **хлебану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **хлёбанне**, -я, *н.*

**ХЛІ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Ціха плакаць, усхліпваць. *Дзесьці жаласна хліпала дзіця.* **2.** *перан.* Слаба, мігатліва гарэць. *У цемені хліпаў агеньчык свечкі.* ‖ *аднакр.* **хлі́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **хлі́панне**, -я, *н.*

**ХЛО́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго (што) чым па чым.* Стукаць па чым-н., звычайна з шумам. *Х. далоняй па плячы каго-н.* **2.** *чым.* Утвараць моцныя гукі, стукаючы чым-н. *Х. дзвярамі.* **3.** Утвараць кароткія адрывістыя гукі (пра стрэлы, выбухі і пад.). *Дзесьці хлопалі стрэлы.* ‖ *аднакр.* **хло́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **хло́панне**, -я, *н.*

**ХЛО́ПЕЦ**, -пца, *мн.* -пцы, -пцаў, *м.* Малады чалавек, юнак.

**ХЛО́ПЧА**, *м.* (разм.). Ужыв. як сяброўскі зварот да каго-н. *Адкуль ты, х., будзеш родам?*

**ХЛО́ПЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Дзіця або падлетак мужчынскага полу. *З малых год х. пачаў працаваць.*

**ХЛОР**, -у, *м.* Хімічны элемент, удушлівы газ жоўта-зялёнага колеру, які выкарыстоўваецца як абеззаражвальны і атрутны сродак. ‖ *прым.* **хло́рны**, -ая, -ае. *Х. пах.*

**ХЛОРАФАРМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *зак.* і *незак., каго-што* (уст.). Усыпіць (усыпляць) пры дапамозе хлараформу.

**ХЛУД**, -у, *М* -дзе, *м.* Дробны хворост, вецце. *Ачысціць двор ад хлуду.*

**ХЛУС**, -а, *мн.* хлусы́, -о́ў, *м.* Той, хто хлусіць; манюка.

**ХЛУСІ́ЦЬ**, хлушу́, хлу́сіш, хлу́сіць; *незак.* Гаварыць няпраўду, маніць. *Ён ніколі не хлусіў.* ‖ *зак.* **схлусі́ць**, схлушу́, схлу́сіш, схлу́сіць; схлу́шаны.

**ХЛУСЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які гаворыць няпраўду, хлусню. *Хлуслівая жанчына.* **2.** Фальшывы, няправільны. *Хлуслівыя словы. Хлуслівыя чуткі.* ‖ *наз.* **хлуслі́васць**, -і, *ж.*

**ХЛУСНЯ́**, -і́, *ж.* Мана, няпраўда, наўмыснае скажэнне фактаў.

**ХЛЫНУЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; *зак.* **1.** Паліцца з сілай, патокам. *Хлынула вада. Кроў хлынула з носа.* **2.** Імкліва накіравацца куды-н. вялікай масай. *Людзі хлынулі ў адчыненыя дзверы.* **3.** *перан.* З'явіцца ў вялікай колькасці. *У майстэрню хлынулі заказы.*

**ХЛЫСТ**[1], -а́, *М* -сце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Спілаванае дрэва з верхавінай, ачышчанае ад сукоў (спец.). **2.** Тонкі, гнуткі дубец, плётка. ‖ *прым.* **хлысто́вы**, -ая, -ае.

**ХЛЫСТ**[2], -а́, *М* -сце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Паслядоўнік хлыстоўства. ‖ *ж.* **хлысто́ўка**, -і, *ДМ* -то́ўцы, *мн.* -і, -то́вак.

**ХЛЫСТ**[3], -а́, *М* -сце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Тое, што і *хлюст.*

**ХЛЫСТА́ЦЬ**, хлышчу́, хлы́шчаш, хлы́шча; хлышчы́; хліста́ны; *незак.* Тое, што і *хвастаць.* ‖ *аднакр.* **хлы́снуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **хлыста́нне**, -я, *н.*

**ХЛЫСТО́ЎСТВА**, -а, *н.* Адзін з кірункаў сектанцтва ў Расіі ў 17—18 стст. ‖ *прым.* **хлысто́ўскі**, -ая, -ае.

**ХЛЫСТО́ЎШЧЫНА**, -ы, *ж.* Тое, што і *хлыстоўства.*

**ХЛЮПАТ**, -у, *М* -паце, *м.* (разм.). Гукі, якія ўтвараюцца пры пераліванні, плёскаце вады.

**ХЛЮ́ПАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Плюхацца (у гразі, вадзе). ‖ *наз.* **хлю́панне**, -я, *н.*

**ХЛЮ́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Утвараць характэрныя гукі, падобныя на хлюпат (пра ваду, вадкасць). *Пад нагамі хлюпала вада.* **2.** Рухацца, ісці па чым-н. вязкім, гразкім, утвараючы такія гукі. *Х. па гразі.* **3.** Плакаць, усхліпваючы. **4.** З шумам, часта ўцягваць носам паветра пры насмарку, плачы. *Х. носам.* ‖ *аднакр.* **хлю́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1, 3 і 4 знач.). ‖ *наз.* **хлю́панне**, -я, *н.*

**ХЛЮ́ПІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм., зневаж.). Бязвольны, нікчэмны, маладушны чалавек. *Нікчэмны х.*

**ХЛЮ́ПКІ**, -ая, -ае (разм.). Гразкі, багністы, балоцісты. *Хлюпкая дарога.* ‖ *наз.* **хлю́пкасць**, -і, *ж.*

**ХЛЮ́ПНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* (разм.). Упасці, плюхнуцца ў што-н. вязкае, вадкае. *Х. ў гразь.*

**ХЛЮСТ**, -а́, *М* -сце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Франтаваты, нахабны, пранырлівы чалавек.

**ХЛЯБТА́ЦЬ**, хлябчу́, хле́бчаш, хле́бча; хлябчы́; *незак., што.* **1.** Піць, чарпаючы вадкасць языком (пра некаторых жывёлін). *Кот хлебча малако.* **2.** Піць прагна, у вялікай колькасці (разм.). *Х. ваду. Х. гарэлку.* ‖ *зак.* **вы́хлебтаць**, -бчу, -бчаш, -бча; -бчы; -бтаны. ‖ *наз.* **хлябта́нне**, -я, *н.*

**ХЛЯ́СЦІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вузкая палоска тканіны, прышытая або прышпіленая ззаду па таліі верхняга адзення. *Паліто з хлясцікам.*

**ХМА́РА**, -ы, *мн.* -ы, хмар, *ж.* **1.** Вялікае, звычайна цёмнае воблака, якое прыносіць дождж, град, снег. *З-за лесу выпаўзала цёмная х.* **2.** *перан., каго-чаго.* Мноства, вялікая колькасць. *Х. камароў.* ‖ *памянш.* **хма́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **хма́равы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ХМАРАЧО́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вельмі высокі шматпавярховы будынак; небаскроб.

**ХМА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пакрыты хмарамі. *Хмарнае неба.* **2.** Пахмурны, хмурны. *Х. дзень.* **3.** *перан.* Пануры, сумны, невясёлы. *Х. настрой.* ‖ *наз.* **хма́рнасць**, -і, *ж.*

**ХМА́РЫЦЦА**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -рыцца; *незак.* Зацягвацца хмарамі, станавіцца хмарным. *Неба х. Х.* (безас.) *на дождж.*

**ХМА́РЫЦЬ**, 1 і 2 ас. звычайна не ўжыв., -рыць; *незак.* **1.** *безас.* Зацягваць хмарамі. *Хмарыць, пэўна будзе дождж.* **2.** *перан., каго-што.* Засмучаць, азмрочваць (разм.). *Вочы хмарыць гора паланянак.*

**ХМЕЛЬ**, хме́лю, *м.* **1.** Павойная расліна сямейства тутавых з доўгім тонкім сцяблом, насенне якой выкарыстоўваецца ў піваварэнні. **2.** Стан ап'янення, выкліканы алкагольнымі напоямі. *Яго х. не бярэ.* ‖ *прым.* **хме́левы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ХМЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які знаходзіцца ў стане ап'янення; нецвярозы. **2.** Які выклікае ап'яненне. *Х. напой. Выпіць хмельнага віна.*

**ХМЕЛЯВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па хмеляводстве.

**ХМЕЛЯВО́ДСТВА**, -а, *н.* Вырошчванне хмелю як галіна раслінаводства. ‖ *прым.* **хмеляво́дчы**, -ая, -ае.

**ХМУРНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Рабіцца, станавіцца хмурным (у 1 знач.), воблачным. *Хмурнела неба.* **2.** *перан.* Станавіцца панурым, хмурным (у 2 знач.). ‖ *зак.* **схмурне́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**ХМЎРНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пахмурны, воблачны (пра неба, надвор'е і пад.). *Х. дзень. Хмурная пара года.* **2.** *перан.* Сумны, пануры. *Гаспадар сядзеў х. Х. настрой.* ‖ *наз.* **хмўрнасць**, -і, *ж.*

**ХМЎРЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *хмурны. Х. дзень. Х. твар.*

**ХМЎРЫЦЦА**, -руся, -рышся, -рыцца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Зацягвацца хмарамі, станавіцца хмурым. *Неба х. Х. на дождж* (безас.). **2.** *перан.* Станавіцца хмурным, насупліваца. *Твар х.*

**ХМЎРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак., што.* Панура або задумліва моршчыць, насупліваць (лоб, бровы).

**ХМЫЗ**, -у, *м.* Тое, што і *хмызняк.*

**ХМЫЗНЯ́К**, -ў, *мн.* -і́, -óў, *м.* Кусты, зараснік. *Каля рэчкі быў густы х.* ‖ *прым.* **хмызняко́вы**, -ая, -ае.

**ХМЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Вымаўляць «хм» або «гм», выказваючы здзіўленне, іронію, сумненне, злосць і пад. *Чаго ты хмыкаеш?* ‖ *аднакр.* **хмы́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **хмы́канне**, -я, *н.*

**ХМЫЛІ́ЦЦА**, -люся, хмылішся, хмыліцца; *незак.* **1.** Злосна ўхмыляцца. **2.** (*1 і 2 ас. звычайна не ўжыв.*). Прыціскаць вушы да галавы (пра каня). *Конь хмыліцца, можа ўбрыкнуць.* ‖ *зак.* **ухмылі́цца**, -мы́ліцца (да 2 знач.).

**ХМЯЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Станавіцца п'яным, п'янець. **2.** *перан.* Прыходзіць у стан узбуджанасці, захаплення ад чаго-н. ‖ *зак.* **ахмяле́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е *і* **захмяле́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е.

**ХНА**, хны, *ж.* Расліна сямейства чальчаковых, з якой атрымліваюць жоўта-чырвоную фарбу, а таксама сама гэта фарба. *Х. ўжываецца для фарбавання валасоў.*

**ХНЫ**. У выразе: **хоць бы хны**, *у знач. вык.* (разм.) — ніколькі не хвалюецца, не турбуецца. *Яго папярэджваюць, а ён хоць бы хны.*

**ХНЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Жаласна плакаць, утвараючы адрывістыя насавыя гукі. **2.** *перан.* Скардзіцца, наракаць на што-н. ‖ *наз.* **хны́канне**, -я, *н.*

**ХО́БАТ**, -а, *М* -аце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У некаторых млекакормячых: рухомы насавы прыдатак, падоўжаны нос. *Х. слана. Х. тапіра.* **2.** Выцягнуты прыдатак у пярэдняй частцы цела некаторых беспазваночных і насякомых, які служыць для хапання здабычы і абароны (спец.). **3.** Частка механізмаў, машын, якая па форме нагадвае выцягнуты нос жывёлы (спец.). **4.** Задняя падоўжаная частка лафета артылерыйскай гарматы або задняя частка станка кулямёта (спец.). ‖ *памянш.* **хабато́к**, -а́, *мн.* -і́, -óў, *м.* ‖ *прым.* **хо́батны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ХО́БІ**, *нескл., н.* Захапленне чым-н., любімы занятак у вольны час. *Яго х. — збіранне марак.*

**ХО́ВАНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Месца, дзе можна знайсці прытулак, схавацца ад каго-, чаго-н. **2.** Скрытае, патайное месца для захоўвання чаго-н. **3.** толькі *мн.* Дзіцячая гульня, у якой адзін шукае астатніх удзельнікаў гульні, якія схаваліся.

**ХОД**, -а *і* -у, *М* хóдзе *і* (на) хадў, *м.* **1.** -у, *гл.* хадзіць. **2.** -у, *М* (на) хадў. Рух, перамяшчэнне ў якім-н. напрамку. *Сядзець у вагоне па ходу цягніка. Машына паскорыла х.* **3.** -у, *М* хóдзе, *перан.* Развіццё, цячэнне чаго-н. *Х. заняткаў. Х. падзей.* **4.** -у, *М* хóдзе, *мн.* хóды, -аў. Перамяшчэнне рухомай часткі механізма ад аднаго крайняга становішча да другога, а таксама велічыня гэтага перамяшчэння. *Х. поршня. Велічыня ходу прэса.* **5.** -у, *М* хóдзе. Дзеянне, работа, якую выконвае машына, механізм. *Рабочы х. рухавіка.* **6.** -у, *М* (на) хадў. Рабочая частка машыны, механізма (спец.). *Анкерны х. гадзінніка.* **7.** -у, *М* (на) хадў. Тэхналагічны працэс; цыкл (спец.). *Домна на гарачым ходу.* **8.** -у, *мн.* хады́, -óў. У шахматах, картах і пад.: чарговае выступленне іграка. *Х. пешкі. Х. козырам.* **9.** -у, *М* хóдзе, *мн.* хады́, -óў, *перан.* Прыём, манеўр для дасягнення якой-н. мэты. *Дыпламатычны х. Хітры х.* **10.** -а, *М* хóдзе, *мн.* хады́, -óў. Месца, праз якое ўваходзяць куды-н., уваход. *Пакой з асобным ходам.* **11.** -а, *М* хóдзе, *мн.* хады́, -óў. Месца, па якім ходзяць; шлях, пераход. *Падземны х.* **12.** -у, *мн.* хóды, -аў, *перан.* Магчымасць дасягнення чаго-н. *Трэба даваць х. маладым пісьменнікам.* ○ **Жалезны ход** — ніжняя хадавая металічная частка воза або іншых якіх-н. транспартных сродкаў. **Малы ход** — запаволены ход судна, а таксама каманда, якая перадаецца ў машыннае аддзяленне для змяншэння скорасці судна. **Поўны ход!** — словы каманды: з гранічнай скорасцю. ◊ **На хаду** — мімаходам. **Па ходу справы** — у залежнасці ад абставін. **Поўным ходам** — інтэнсіўна, узмоцнена (ідзе, адбываецца што-н.). **Сваім ходам** — 1) пехатой; 2) работай свайго матора. ‖ *прым.* **хадавы́**, -а́я, -óе (да 2, 4 і 6 знач.; спец.). *Дзве хадавыя гадзіны карабля.*

**ХО́ДЗІКІ**, -аў (разм.). Насценны гадзіннік спрошчанай канструкцыі з гірамі.

**ХО́ДКІ**, -ая, -ае. **1.** Які хутка ходзіць, рухаецца, лёгкі на хаду. *Х. конь.* **2.** Які карыстаецца вялікім попытам (пра тавары, вырабы і пад.). *Ходкая прадукцыя.* ‖ *наз.* **хо́дкасць**, -і, *ж.*

**ХО́ДЫР**, -у, *м.* У выразе: **хадзіць ходырам** (разм.) — моцна трэсціся, хістацца. *Ад ветру палатка ходзіць ходырам.*

**ХОЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікае памяшканне ў грамадскіх будынках (гасцініцах, тэатрах і пад.) для адпачынку, чакання.

**ХО́ЛАД**, -у, *М* -дзе, *мн.* халады́, -óў, *м.* **1.** толькі *адз.* Нізкая тэмпература паветра. *Адчуваць х.* **2.** Надвор'е з нізкай тэмпературай паветра. *Рана пачаліся халады.* **3.** толькі *адз.* Адчуванне дрыжыкаў (ад хваробы, страху і пад.). *Х. прабег па спіне.* **4.** толькі *адз., перан.* Раўнадушныя, стрыманыя адносіны да каго-, чаго-н. *Ад яго слоў веяла холадам.*

**ХОЛАДА...** (а таксама **халада...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да холаду (у 1 знач.), напр.: *холадалюбівы, холадаўстойлівы;* 2) які мае адносіны да халадзільных установак, напр. *холадакамбінат.*

**ХО́ЛАДНА**, *у знач. вык.* **1.** Пра халоднае надвор'е. *Раніцай х.* **2.** *каму-чаму.* Аб стане чалавека, які адчувае холад. *Мне х.*

**ХО́ЛДЫНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прадпрыемства, фірма і пад., якія з'яўляюцца ўладальнікамі кантрольных пакетаў акцый іншых прадпрыемстваў, ажыццяўляюць кантроль за іх дзейнасцю і атрымліваюць даходы ў выглядзе дывідэндаў.

**ХОР**, -у, *мн.* хары́ *і* (з *ліч. 2, 3, 4*) хóры, харóў, *м.* **1.** Група спевакоў, якія разам выконваюць вакальныя творы. *Х. хлопчыкаў.* **2.** Музычная п'еса, прызначаная для выканання пеўчым калектывам. **3.** *перан.* Адначасовае гучанне мноства галасоў, гукаў. *Х. дзіцячых галасоў. Птушыны х.* **4.** *перан.* Мноства аднолькавых выказванняў, меркаванняў. *Х. пахвал.* **5.** *у знач. прысл.* **хóрам**. Усе разам, у некалькі галасоў, дружна. *Спяваць хорам. Прапанову падхапілі хорам.* ‖ *прым.* **харавы́**, -а́я, -óе (да 1 і 2 знач.). *Х. гурток. Харавыя песні.*

**ХО́РАМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікі дом, палац. *Не дом, а х. пабудаваў.* ‖ *прым.* **хо́рамны**, -ая, -ае.

**ХО́РАША**, *безас., у знач. вык.* **1.** Аб прыемных абставінах. *Як х. вакол.* **2.** Аб пачуцці ўнутранага задавальнення. *Х. на сэрцы.*

**ХО́РДА**[1], -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, хорд *і* -аў, *ж.* У матэматыцы: прамая, якая злучае дзве кропкі крывой (дугі, акружнасці).

**ХО́РДА**[2], -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, хорд *і* -аў, *ж.* (спец.). Спінная струна: першасная шкілетная вось у некаторых жывёл і зародка чалавека. ‖ *прым.* **хо́рдавы**, -ая, -ае.

**ХОРМА́ЙСТАР**, -тра, *мн.* -тры, -траў, *м.* Кіраўнік хору, харавы дырыжор. ‖ *прым.* **хорма́йстарскі**, -ая, -ае.

**ХО́РЫ**, -аў. Адкрытая галерэя або балкон у верхняй частцы параднай залы або царкоўнага будынка (першапачаткова для размяшчэння хору, музыкантаў).

**ХО́СПІС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Бальніца для невылечна хворых.

**ХО́ХМА**, -ы, *ж.* (разм.). Дасціпны, вясёлы жарт, учынак і пад.

**ХОЦЬ**. **1.** *злуч. уступальны.* Падпарадкоўвае дадзеныя ўступальныя сказы, выступаючы ў знач.: нягледзячы на тое, што. *Х. было ўжо позна, ніхто не спаў. Х. прыпякала сонца, вада ў рэчцы была халодная.* **2.** *злуч. уступальны* (звычайна ў спалучэнні з загадным ладам або інфінітывам). Ужыв. ў пачатку дадзеных сказаў, у якіх выказваецца дапушчэнне, вызначаецца крайняя мяжа, ступень праяўлення чаго-н., магчымасць якога-н. выніку. *Нікога не слухае,*

**ЦЕПЛААДДА́ЧА**, -ы, *ж.* (спец.). **1.** Аддача цяпла нагрэтым целам у акаляючае асяроддзе. **2.** У фізіялогіі: вылучэнне цяпла жывёльным арганізмам у працэсе яго жыццядзейнасці.

**ЦЕПЛААХО́ВА**, -ы, *ж.* (спец.). Тое, што і *цеплаізаляцыя.* ‖ *прым.* **цеплаахо́ўны**, -ая, -ае.

**ЦЕПЛАВО́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лакаматыў з рухавіком унутранага згарання. ‖ *прым.* **цеплаво́зны**, -ая, -ае.

**ЦЕПЛАВЫ́**, -а́я, -о́е. Які мае адносіны да цеплаты (у 1 знач.), заснаваны на дзеянні цеплаты. *Цеплавая энергія. Цеплавая электрастанцыя.*

**ЦЕПЛАЁМІСТАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Колькасць цеплаты, якая паглынаецца целам пры награванні на 1° С або якая аддаецца целам пры ахалоджванні на 1° С.

**ЦЕПЛАЁМІСТЫ**, -ая, -ае. (спец.). **1.** Які валодае вялікай цеплаёмістасцю. **2.** Які патрабуе вялікіх затрат цяпла, паліва. *Цеплаёмістая вытворчасць.*

**ЦЕПЛАЗАБЕСПЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Цэнтралізаванае забеспячэнне жылых дамоў і прамысловых прадпрыемстваў гарачай вадой і парай для ацяплення, бытавых і тэхнічных патрэб.

**ЦЕПЛАІЗАЛЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Ахова жылых, вытворчых і іншых збудаванняў, цеплаўстановак, трубаправодаў і пад. ад непажаданага цеплавога абмену з акаляючым асяроддзем. *Ц. трубаправода.* ‖ *прым.* **цеплаізаляцы́йны**, -ая, -ае.

**ЦЕПЛАКРО́ЎНЫЯ**, -ых, *адз.* -ае, -ага, *н.* Жывёлы з аднасна пастаяннай тэмпературай цела, якая не залежыць ад тэмпературы навакольнага асяроддзя (большасць млекакормячых і птушкі).

**ЦЕПЛАЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які баіцца ўздзеяння нізкіх тэмператур, любіць цяпло, жыве ў цяпле, у цёплым клімаце. *Цеплалюбівыя расліны.* ‖ *наз.* **цеплалюбі́васць**, -і, *ж.*

**ЦЕПЛАМЕ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор, лічыльнік для вызначэння колькасці цеплаты, якую атрымлівае спажывец з цеплафікацыйнай сеткі. ‖ *прым.* **цепламе́рны**, -ая, -ае.

**ЦЕПЛАНО́СЬБІТ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Рухомае асяроддзе (газ, пара, вадкасць), якое скарыстоўваецца для пераносу цеплаты. **2.** У ядзерным рэактары: вадкае або газападобнае рэчыва, якое выносіць з актыўнай зоны цяпло, вылучанае ў выніку рэакцыі падзелу ядзер.

**ЦЕПЛАПЕРАДА́ЧА**, -ы, *ж.* (спец.). Цеплаабмен паміж двума цепланосьбітамі або іншымі асяроддзямі праз цвёрдую сценку, якая іх размяжоўвае.

**ЦЕПЛАПРАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Трубаправод для перадачы на адлегласць гарачай вады, пары.

**ЦЕПЛАПРАВО́ДНАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Уласцівасць цел перадаваць цеплыню ад нагрэтых участкаў да больш халодных.

**ЦЕПЛАПРАВО́ДНЫ**, -ая, -ае (спец.). Якому ўласціва цеплаправоднасць.

**ЦЕПЛАСІЛАВЫ́**, -а́я, -о́е. Звязаны з пераўтварэннем цеплавой энергіі ў які-н. іншы від энергіі. *Цепласілавая ўстаноўка.*

**ЦЕПЛАТА́**, -ы́, *ДМ* -лаце́, *ж.* **1.** *гл.* цёплы. **2.** Форма руху матэрыі — беспарадачны рух часціц цела; энергетычная характарыстыка цеплаабмену, што вызначаецца колькасцю энергіі, якую атрымлівае награваемае цела (спец.). *Адзінка цеплаты.* **3.** Тое, што і *цеплыня* (разм.).

**ЦЕПЛАТВО́РНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* цеплатворны. **2.** Колькасць цяпла ў калорыях, якую выдзяляе 1 кг якога-н. рэчыва пры поўным згаранні (спец.).

**ЦЕПЛАТВО́РНЫ**, -ая, -ае. Здольны ўтвараць цяпло. *Ц. матэрыял.* ‖ *наз.* **цеплатво́рнасць**, -і, *ж.*

**ЦЕПЛАТРА́СА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́с, *ж.* Лінія, шлях цеплаправода.

**ЦЕПЛАТЭ́ХНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне цеплатэхнікі.

**ЦЕПЛАТЭ́ХНІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* **1.** Галіна тэхнікі, якая займаецца пытаннямі атрымання і выкарыстання цеплавой энергіі. **2.** Комплекс навуковых дысцыплін па вывучэнні метадаў атрымання, ператварэння і выкарыстання цеплаты. ‖ *прым.* **цеплатэхні́чны**, -ая, -ае.

**ЦЕПЛАЎСТО́ЙЛІВАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Здольнасць цела вытрымліваць высокую тэмпературу або значную розніцу тэмператур, не трацячы сваіх якасцей. *Ц. металу.*

**ЦЕПЛАЎСТО́ЙЛІВЫ**, -ая, -ае. Якому ўласціва цеплаўстойлівасць. *Ц. сплаў.*

**ЦЕПЛАФІКАВА́ЦЬ**, -кую, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *зак.* і *незак., што.* Забяспечыць (забяспечваць) цеплынёй.

**ЦЕПЛАФІКА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Цэнтралізаванае забеспячэнне жылых дамоў, прадпрыемстваў і пад. цяплом, атрыманым ад камбінаванай выпрацоўкі электраэнергіі і цеплыні на цеплаэлектрацэнтралі. ‖ *прым.* **цеплафікацы́йны**, -ая, -ае.

**ЦЕПЛАХО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Марское або рачное судна з рухавіком унутранага згарання. ‖ *прым.* **цеплахо́дны**, -ая, -ае.

**ЦЕПЛАЦЭНТРА́ЛЬ**, -і, *Т* -ллю, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* (разм.). Тое, што і *цеплаэлектрацэнтраль.*

**ЦЕПЛАЭЛЕКТРАЦЭНТРА́ЛЬ**, -і, *Т* -ллю, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* Цеплавая электрастанцыя, якая выпрацоўвае электраэнергію і цяпло, якое накіроўваецца спажыўцам у выглядзе гарачай вады і пары (ЦЭЦ).

**ЦЕПЛАЭНЕРГЕ́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* (спец.). Галіна цеплатэхнікі, якая займаецца пераўтварэннем цеплаты ў іншыя віды энергіі (механічную, электрычную). ‖ *прым.* **цеплаэнергеты́чны**, -ая, -ае.

**ЦЕ́ПЛІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *незак.* Тое, што і *цяпліцца.*

**ЦЕ́ПЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак.* Тое, што і *цяпліць.*

**ЦЕПЛЫНЯ́**, -і́, *ж.* **1.** Нагрэтасць чаго-н. *Адчуваць цеплыню рук.* **2.** Адчуванне ўнутранага цяпла. *Па целе разлілася прыемная ц.* **3.** *перан.* Сардэчнасць, дабрата, ласка; добрыя, шчырыя адносіны да каго-, чаго-н. *У яго словах чулася душэўная ц.*

**ЦЕРАБІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Машына для церабления лёну, канапель.

**ЦЕРАБІ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік, які цярэбіць лён, каноплі. ‖ *ж.* **церабі́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЦЕРАБІ́ЦЦА**, цераблю́ся, цярэ́бішся, цярэ́біцца; *незак.* **1.** Рабіць дробныя, частыя рухі, вызваляючыся ад каго-, чаго-н.; атрасацца. *Ц. ад камароў.* **2.** Чысціцца дзюбай (пра птушак). ‖ *зак.* **ацерабі́цца**, ацераблю́ся, ацярэ́бішся, ацярэ́біцца (да 1 знач.).

**ЦЕРАБІ́ЦЬ**, цераблю́, цярэ́біш, цярэ́біць; цярэ́блены; *незак.* **1.** *што.* Ачышчаць ад хмызняку (лес). **2.** Абчышчаць ад бацвіння, карэньчыкаў і пад. (гародніну). *Ц. буракі.* **3.** *што.* Абсякаць галіны, сучча з паваленых дрэў. **4.** *што.* Вылузваць, выкалупваць, лушчыць што-н. *Вавёрка церабіла шышкі.* **5.** *што.* Чысціць дзюбай пер'е (пра птушак). **6.** *што.* Торгаць, тузаць, перабіраць пальцамі што-н. *Ц. канцы хусткі.* **7.** *перан., каго (што).* Надакучаць пытаннямі, просьбамі (разм.). **8.** *што.* Вырываючы з коранем, убіраць машынай з поля (лён, каноплі). ‖ *зак.* **вы́церабіць**, -блю, -біш, -біць; -блены (да 1 і 8 знач.). ‖ *наз.* **церабле́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **церабі́льны**, -ая, -ае (да 8 знач.). *Церабільная машына.*

**ЦЕ́РАЗ**, *прыназ. з В.* **1.** Упоперак чаго-н., з аднаго боку на другі. *Перайсці ц. вуліцу. Пабудаваць пераправу ц. раку.* **2.** Паверх чаго-н. *Пераскочыць ц. плот.* **3.** Праз, скрозь што-н. (пры назвах прадметаў, асяроддзя, праз якія хто-, што-н. праходзіць, пранікае). *Ісці ц. лес. Залезці ц. акно. Ц. шыбы ледзь прасочвалася святло.* **4.** Пры дапамозе каго-, чаго-н. *Перадаць прывітанне ц. знаёмага.* **5.** Праз некаторы час або праз некаторую адлегласць пасля чаго-н. *Сустрэліся ц. год. Дрэўцы раслі ц. кожныя дзесяць метраў.* **6.** Па якой-н. прычыне, па віне каго-н. *Ц. яго многія пацярпелі.*

**ЦЕРАЗЗЕ́РНІЦА**, -ы, *ж.* (спец.). Няпоўная завязь зерня ў каласах хлебных злакаў у выніку няпоўнага апылення.

**ЦЕ́РАМ**, -а, *мн.* -ы́ *і (з ліч. 2, 3, 4)* це́рамы, церамо́ў, *м.* **1.** У Старажытнай Русі: высокі багаты дом у выглядзе вежы. **2.** Пра высокі, прыгожы драўляны дом. *Не дом, а ц. пабудаваў!* ‖ *памянш.* **церамо́к**, -мка́, *мн.* -мкі́, -мко́ў, *м.* ‖ *прым.* **це́рамны**, -ая, -ае.

**ЦЕРАСПАЛО́СІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -сіц, *ж.* Размяшчэнне зямельных участкаў адной гаспадаркі палосамі ўперамежку з чужымі ўчасткамі. ‖ *прым.* **цераспало́сны**, -ая, -ае.

**ЦЕРАССЯДЗЕ́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *пасак* (у 3 знач.).

**ЦЕРАССЯДЗЁЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* Тое, што і *пасак* (у 3 знач.).

**ЦЕРНАСЛІ́ВА**, -ы, *мн.* -ы, -сліў, *ж.* Пладовае дрэва або куст, натуральны гібрыд цёрну і слівы, а таксама салодкія сінявата-чорныя плады гэтага дрэва. ‖ *прым.* **цернаслі́вавы**, -ая, -ае.

**ЦЕ́РНІ**, -яў, **1.** Пра калючыя расліны, а таксама калючкі на іх (уст. *і* кніжн.). **2.** *перан.* Цяжкасці, пакуты, якія сустракаюцца на жыццёвым шляху каго-н.

**ЦЕ́РНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Прылада, якой труць лён, каноплі.

**ЦЕ́РПКІ**, -ая, -ае. Кіславата-даўкі, аскомісты. *Церпкае віно.* ‖ *наз.* **це́рпкасць**, -і, *ж.*

**ЦЕРУСІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., цярýсіцца; *незак.* (разм.). Тое, што і *церушыцца.*

**ЦЕРУСІ́ЦЬ**, церушý, цярýсіш, цярýсіць; цярýсім, цярýсіце, цярýсяць; *незак.* (разм.). Тое, што і *церушыць.*

**ЦЕРУШЫ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., цярýшыцца; *незак.* **1.** Сыпацца, пакрысе рассыпацца. *З шчылін столі церушыўся пясок.* **2.** Ісці, імжэць (пра дробны снег, дождж).

**ЦЕРУШЫ́ЦЬ**, церушý, цярýшыш, цярýшыць; *незак.* **1.** *што.* Пераціраць, здрабняць што-н. сухое. **2.** *што* і *чым.* Прымушаць што-н. сыпацца, падаць. *Ц. соль на хлеб.* **3.** Ісці, імжэць (пра дробны снег, дождж). ‖ *наз.* **церушэ́нне**, -я, *н.*

**ЦЕ́РЦІ**, тру, трэш, трэ; тром, трацé, труць; цёр, цéрла; тры; цёрты; *незак., што.* **1.** Націскаючы, вадзіць узад і ўперад па чым-н. *Ц. падлогу шчоткай. Ц. спіну мачалкай.* **2.** Размінаючы, націскаючы, змешваць, ператвараць што-н. у парашок, у дробную аднародную масу. *Ц. тытунь. Ц. мак.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра абутак, адзенне: будучы цесным, нязручным, націраць, пашкоджваць скуру. **4.** Пераціраць, рабіць мякчэйшым. *Ц. лён.* ‖ *аднакр.* **церанýць**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé; -нýць; -ні́ *і* **цярнýць**, -нý, -нéш, -нé; -нём, церняцé, -нýць; -ні́ (да 1 знач.).

**ЦЕ́РЦІСЯ**, трýся, трэ́шся, трэ́цца; трóмся, трацéся, трýцца; цёрся, цéрлася; тры́ся; *незак.* **1.** Церці сябе чым-н. *Ц. ручніком.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Рухацца, дакранаючыся да паверхні іншага прадмета. *Крыгі церліся адна аб адну. Змазаць дэталі машыны, каб не церліся.* **3.** *перан.* Знаходзіцца дзе-н., каля каго-н. без пэўнага занятку, аціраццa (разм.). *Хлапчукі церліся каля машыны.* ‖ *зак.* **пацéрціся**, патрýся, патрэ́шся, патрэ́цца; патрóмся, патрацéся, патрýцца; патры́ся. ‖ *аднакр.* **цярнýцца**, -нýся, -нéшся, -нéцца; -нёмся, церняцéся, -нýцца; -ні́ся (да 2 знач.).

**ЦЕ́СЛЯ**, -і, *ДМ* -ю, *Т* -ем, *мн.* -і, -яў, *м.* Тое, што і *цясляр.*

**ЦЕСНАТА́**, -ы́, *ДМ* -нацé, *ж.* **1.** *гл.* цесны. **2.** Адсутнасць вольнага месца, прасторы. *Жыць у цеснаце.* **3.** Скапленне людзей на малой прасторы. *У аўтобусе ц.*

**ЦЕ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які займае недастатковую плошчу, непрасторны. *Ц. пакой. Цесная вулачка.* **2.** Пра адзенне, абутак і пад.: малы па памеры. *Цесныя боты.* **3.** Шчыльна размешчаны адзін каля аднаго. *Дзеці сядзелі цесным радком. Цесна* (прысл.) *паставіць кнігі.* **4.** *перан.* Абмежаваны, вузкі. *Цеснае кола знаёмых.* **5.** *перан.* Блізкі, непасрэдна звязаны з кім-, чым-н. *Ц. кантакт. Цесная дружба. Гэтыя праблемы цесна* (прысл.) *звязаны.* ‖ *наз.* **цеснатá**, -ы́, *ДМ* -нацé, *ж.* (да 1 знач.) *і* **цяснóта**, -ы, *ж.* (да 1 знач.).

**ЦЕ́СТА**, -а, *М* -сце, *н.* **1.** Вязкая маса з мукі, замешанай на вадзе, малацэ і пад. *Замясіць ц. Здобнае ц.* **2.** Густая маса, атрыманая пры змешванні цвёрдага, сыпкага рэчыва з вадкасцю. *Бетоннае ц.* ‖ *прым.* **цéставы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЦЕСТАМЕ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апарат, які замешвае цеста, а таксама рабочы, які выконвае такую работу.

**ЦЕСТАМЯСІ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Машына, якая месіць цеста. *Механічная ц.* ‖ *прым.* **цестамясі́льны**, -ая, -ае.

**ЦЕСТАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Па ступені густаты, вязкасці падобны на цеста. *Цестападобная маса.*

**ЦЕСЦЬ**, -я, *мн.* цясці́ *і (з ліч. 2, 3, 4)* цéсці, цясцёў, *м.* Жончын бацька. ‖ *прым.* **цéсцеў**, -цева.

**ЦЕЦІВА́**, -ы́, *мн.* цяці́вы *і (з ліч. 2, 3, 4)* цецівы́, цяці́ў, *ж.* **1.** Вяроўка, струна, якая сцягвае канцы лука. **2.** Туга нацягнутая вяроўка, трос у некаторых механізмах, прыладах (спец.). *Ц. лучковай пілы.* **3.** Бакавая нахіленая бэлька лесвіцы, у якую ўстаўлены канцы прыступак (спец.).

**ЦЕЦЯРУ́К**, цецерукá, *мн.* цецерукí, цецерукóў, *м.* Птушка сямейства цецеруковых атрада курыных з чорным (у самак — стракатым) апярэннем. ‖ *прым.* **цецерукóвы**, -ая, -ае.

**ЦЕ́ЧА**, -ы, *ж.* **1.** Пранікненне вадкасці цераз шчыліну, прабоіну. **2.** Дзірка, прабоіна.

**ЦЕ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *ж.* (спец.). Перыяд палавой актыўнасці ў самак млекакормячых.

**ЦЕ́ШЧА**, -ы, *мн.* -ы, цешч *і* -аў, *ж.* Жончына маці. ‖ *прым.* **це́шчын**, -а.

**ЦЕ́ШЫЦЦА**, -шуся, -шышся, -шыцца; *незак.* **1.** *кім-чым* і *з каго-чаго.* Адчуваць асалоду, задавальненне ад чаго-н., радавацца чаму-н. *Ц. дасягнутымі поспехамі. Ц. з дзяцей.* **2.** Радавацца, весяліцца. *Цешыліся дарослыя і дзеці, чуліся песні.* **3.** *кім-чым* і *з каго-чаго.* Забаўляцца, пацяшацца. *Дзіця ц. новай цацкай.* **4.** *чым.* Суцяшаць, абнадзейваць сябе. *Людзі цешыліся думкай аб лепшым будучым.* ‖ *зак.* **паце́шыцца**, -шуся, -шышся, -шыцца.

**ЦЕ́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; *незак. каго-што* **1.** Выклікаць радасць, задавальненне, весяліць. *Атрыманы ўраджай цешыў хлебароба. Усё, што здарылася, яго не цешыла, а засмучала.* **2.** Забаўляць. *Ц. дзіця цацкамі.* **3.** Суцяшаць, абнадзейваць. *Ц. сябе надзеяй на лепшае.* ‖ *зак.* **паце́шыць**, -шу, -шыш, -шыць.

**ЦЁЗКА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -зцы, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -зак (разм.). Чалавек, які мае аднолькавае з кім-н. імя. *Мы з ім цёзкі.*

**ЦЁК**, -у, *м.* Цячэнне, плынь. ◊ **Цёкам цячы** — моцна цячы.

**ЦЁЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Тое, што і *цялушка.*

**ЦЁМНА...** *і* **ЦЁМНА-...** (а таксама **цемна...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. цёмны (у 2 знач.); з цёмным адценнем, напр.: *цёмнабароды, цёмнавалосы, цёмналісцёвы; цёмна-вішнёвы, цёмна-сіні, цёмна-фіялетавы.*

**ЦЁМНАВАЛО́СЫ**, -ая, -ае. Які мае цёмныя валасы. *Ц. хлопчык.*

**ЦЁМНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пазбаўлены святла, асвятлення. *Ц. пакой. Цёмная ноч. У хаце было цёмна* (у знач. вык.). **2.** Блізкі па колеры да чорнага. *Цёмная хмара. Цёмныя вочы.* **3.** *перан.* Змрочны, пануры, невясёлы. *Цёмныя думкі. На душы цёмна* (у знач. вык.). **4.** *перан.* Неадукаваны, невысокай культуры; адсталы. *Ц. чалавек.* **5.** *перан.* Які выклікае недавер, падазроны. *Цёмная асоба. Цёмныя махінацыі. Цёмнае мінулае.* **6.** Незразумелы, няясны, заблытаны. *Цёмнае пытанне.* **7.** *у знач. наз.* **цёмная**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Памяшканне для арыштаваных, карцар (уст.).

**ЦЁПЛА**, *прысл., у знач. вык.* **1.** Пра цёплае надвор'е; цеплыню ў памяшканні. *Раніцай ц. У пакоі ц.* **2.** *каму.* Пра адчуванне кім-н. цяпла. *У паліто мне ц.* **3.** *перан.* Пра адчуванне душэўнай цеплаты. *На душы ц. ад добрых слоў.*

**ЦЁПЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае тэмпературу, сярэднюю паміж гарачым і халодным. *Цёплая вада. Ц. вецер. Цёплае надвор'е.* **2.** З высокай сярэднегадавой тэмпературай. *Ц. клімат. Цёплыя краіны.* **3.** Які добра засцерагае ад холаду. *Цёплая хустка.* **4.** *перан.* Які вызначаецца душэўнай цеплынёй; сардэчны, прыязны, добразычлівы. *Цёплыя словы. Цёплыя адносіны.* **5.** *перан.* Мяккі, прыемны для зроку. *Цёплыя фарбы восені.* ◊ **Цёплае месца** — выгадная пасада. ‖ *наз.* **цеплатá**, -ы́, *ДМ* -лацé, *ж.* (да 1, 2, 4 і 5 знач.). ‖ *прым.* **цёпленькі**, -ая, -ае (да 1 і 3 знач.).

**ЦЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (спец.). **1.** Сельскагаспадарчая машына для выцярушвання насення з галовак канюшыны, лёну і пад. *Механічная ц.* **2.** Лапатка з ручкай для разгладжвання тынку пры тынкаванні. ‖ *прым.* **цёрачны**, -ая, -ае. *Ц. барабан.*

**ЦЁРЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* Гліняная пасудзіна, у якой труць мак, таўкуць бульбу і пад. *У цёрле стаяла недатоўчаная бульба.*

**ЦЁРН**, -у, *м.* Калючы куст або дрэва сямейства ружакветных, а таксама дроб-

ныя чорна-сінія, з шызым налётам плады гэтай расліны, якія маюць даўкі смак. ‖ *прым.* **цярно́вы**, -ая, -ае. *Ц. куст.* ◊ **Цярновы вянок** — сімвал мучэння, пакут (калючы цярновы вянок быў надзеты на Ісуса Хрыста перад распяццем на крыжы).

**ЦЁТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Бацькава або матчына сястра; жонка дзядзькі. **2.** Жанчына наогул (часцей пажылая; разм.). ‖ *ласк.* **цётачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж. і* **цётухна**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* ‖ *прым.* **цётчын**, -а.

**ЦЁХКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Утвараць гукі, падобныя на «цёх-цёх». ‖ *аднакр.* **цёхнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **цёхкат**, -у, *М* -каце, *м. і* **цёхканне**, -я, *н.*

**ЦЁЦЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* **1.** Зварот, галоўным чынам дзяцей, да дарослай жанчыны. **2.** (з вялікай літары). Багіня ўрадлівасці і дабрабыту ў міфалогіі ўсходніх славян.

**ЦЁША**, -ы, *ж. і* **ЦЁШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* Брушная частка сяўругі, асётра і некаторых іншых рыб, якая ідзе ў ежу ў вэнджаным выглядзе.

**ЦІ**, *злуч.* і *часц.* **1.** *злуч. размеркавальны.* Ужыв. для супастаўлення членаў сказа і сказаў, якія па сваім значэнні з'яўляюцца аднолькава магчымымі ці раўназначнымі, указваючы на выбар аднаго з іх. *Заўтра будзе дождж ці снег. Хлопчыку гадкоў пяць ці шэсць.* **2.** *злуч. размеркавальна-пералічальны.* Аб'ядноўвае сказы і члены сказа пры пералічэнні. *Ці рана, ці позна, ці зусім не прыйдзе.* **3.** Уваходзіць у склад паўторнага пералічальна-размеркавальнага злучніка «ці то..., ці то». **4.** *злуч. далучальны.* Ужыв. для далучэння членаў сказа і сказаў з заўвагамі дадатковага характару. *Рукі выціралі скарачом ці, як яго яшчэ называюць, трапкачом.* **5.** *злуч. падпарадкавальны.* Ужыв. пры даданых сказах з ускосным пытаннем. *Мы падумалі, ці не збіраецца на дождж.* **6.** *часц. пыт.* Узмацняе пытальны характар. *Ці зразумеюць яны нас?*

**ЦІВУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (гіст.). Назва розных службовых асоб у Расіі да 17 ст., а таксама наглядчык за працай сялян у памешчыка ў часы прыгону.

**ЦІК**[1], -у, *м.* (спец.). Нервовы стан, пры якім назіраецца міжвольнае перасмыкванне мышцаў твару, галавы, плячэй. ‖ *прым.* **ціко́зны**, -ая, -ае. *Цікозная сутарга.*

**ЦІК**[2], -у, *м.* (спец.). Шчыльная льняная або баваўняная тканіна, звычайна паласатая, якая выкарыстоўваецца для абіўкі мэблі, пашыўкі чахлоў і пад. ‖ *прым.* **цікавы**, -ая, -ае.

**ЦІК**[3], -а *і* -у, *м.* **1.** -а. Дзікарослае дрэва сямейства вербенавых з моцнай драўнінай, якое расце ў лясной паласе Індыі, Індакітая. **2.** -у. Драўніна гэтага дрэва, якая выкарыстоўваецца ў караблебудаванні. ‖ *прым.* **цікавы**, -ая, -ае.

**ЦІКАВА́ЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; *незак.* Выглядваць адкуль-н., падглядваць, сачыць за кім-н. *Ц. з-за вугла.* ‖ *наз.* **цікава́нне**, -я, *н.*

**ЦІКА́ВІЦЦА**, -ка́ўлюся, -ка́вішся, -ка́віцца; *незак., кім-чым.* **1.** Імкнуцца атрымаць звесткі аб кім-, чым-н. *Ц. планамі на будучае.* **2.** Захапляцца кім-, чым-н., імкнуцца да каго-, чаго-н. *Ц. музыкай.*

**ЦІКА́ВІЦЬ**, -ка́ўлю, -ка́віш, -ка́віць; *незак., каго-што.* **1.** Выклікаць цікавасць, імкненне даведацца пра каго-, што-н. *Усіх цікавіла, што ён за чалавек.* **2.** Выклікаць захапленне, прыхільнасць да сябе. *Яго цікавіла скульптурнае мастацтва.*

**ЦІКА́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выклікае цікавасць, захапляе чым-н. *Цікавая кніга. Ц. чалавек. Цікавыя факты. Цікава* (прысл.) *расказваць.* **2.** Тое, што і *цікаўны. Хто ц., стараўся даведацца, што здарылася.* **3.** Прыгожы (разм.). *Ён ужо немалады, але ц. мужчына.* ‖ *наз.* **ціка́васць**, -і, *ж.*

**ЦІКА́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які хоча ўсё ведаць, бачыць; дапытлівы. *Ц. вучань.* ‖ *наз.* **ціка́ўнасць**, -і, *ж.*

**ЦІ́КАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* (разм.). Ціха і мерна пастукваць (звычайна пра гукі гадзіннікавага механізма). ‖ *аднакр.* **ці́кнуць**, -не. ‖ *наз.* **ці́канне**, -я, *н.*

**ЦІК-ТА́К**, *гукапераймальн.* (разм.). Пра гукі працуючага гадзіннікавага механізма.

**ЦІМАФЕ́ЕЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* Кармавая расліна сямейства злакавых з суквеццем у выглядзе коласападобнай мяцёлкі.

**ЦІМУ́РАЎЦЫ**, -раўцаў, *адз.* -равец, -раўца, *м.* У СССР у перыяд Вялікай Айчыннай вайны і адразу пасля яе: удзельнікі дзіцячага патрыятычнага руху, якія аказвалі дапамогу сем'ям франтавікоў, інвалідам вайны, адзінокім састарэлым людзям [ад імя Цімура, героя аповесці А. Гайдара]. ‖ *прым.* **цімý раўскі**, -ая, -ае. *Ц. рух.*

**ЦІ́НА**, -ы, *ж.* **1.** Зялёныя водарасці, якія плаваюць густой масай у стаячай і малапраточнай вадзе. **2.** *перан.* Аб тым, што засмоктвае, аблытвае, пазбаўляе волі, свабоды дзеяння. *Ц. абывацельшчыны.* ‖ *прым.* **ці́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЦІ́НІСТЫ**, -ая, -ае. Пакрыты цінай, у якім многа ціны. *Ціністая сажалка.*

**ЦІ́НЬКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Утвараць гукі, падобныя на «цінь-цінь» (пра птушак). *Цінькае сініца на асіне.* ‖ *аднакр.* **ці́нькнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **ці́нканне**, -я, *н.*

**ЦІ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* (разм.). Курыца. ‖ *памянш.-ласк.* **ці́пачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ЦІПУ́Н**, -а́, *м.* Хвароба птушак — храсткаваты нараст на канцы языка. ◊ **Ціпун на язык** *каму* — нядобрае пажаданне таму, хто сказаў што-н. непажаданае, непрыемнае.

**ЦІП-ЦІ́П**, *выкл.* Вокліч, якім падзываюць курэй.

**ЦІПЧА́К**, -ý, *м.* Стэпавая кармавая расліна сямейства злакавых. ‖ *прым.* **ціпчако́вы**, -ая, -ае.

**ЦІР**[1], -а, *м.* Спецыяльна прыстасаванае памяшканне для стральбы па мішэнях.

**ЦІР**[2], -у, *м.* (спец.). Састаў з каніфолі, смалы і інш., якім змазваюць стаячы такелаж і рангоўт на караблях.

**ЦІС**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а. Хвойнае вечназялёнае дрэва або куст з цвёрдай буравата-чырвонай драўнінай. **2.** -у. Каштоўная драўніна гэтага дрэва. ‖ *прым.* **ці́савы**, -ая, -ае.

**ЦІСК**, -у, *м.* **1.** *гл.* ціснуць. **2.** Сіла, што дзейнічае на якую-н. паверхню ў разліку на адзінку плошчы паверхні (спец.). *Ц. паветра. Ц. пары на сценкі катла.* **3.** Тое, што і крывяны ціск (разм.). *Праверыць ц.* **4.** Пра павышаны крывяны ціск у каго-н. (разм.). *Ад ціску баліць галава.* **5.** *перан.* Уздзеянне на каго-, што-н., насілле над чыёй-н. воляй, перакананнямі; прымус. *Эканамічны ц.* ○ **Атмасферны ціск** — напор атмасферы на ўсе размешчаныя ў ёй прадметы і на зямную паверхню. **Крывяны ціск** — сіла, што дзейнічае на сценкі крывяносных сасудаў чалавека і жывёл пад уплывам кровазвароту.

**ЦІ́СКАЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які служыць для атрымання адбіткаў, для друкавання. *Ц. станок.*

**ЦІ́СКАЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы друкарні, які робіць адбіткі набору на ручным станку. ‖ *ж.* **ці́скальшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЦІСКАНІ́НА**, -ы, *ж.* Цесната, штурханіна ў натоўпе.

**ЦІ́СКАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Штурхаць, прыціскаць адзін аднаго ў цеснаце.

**ЦІ́СКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што.* **1.** Націскаць на што-н. шмат разоў. **2.** Сціскаць у абдымках, моцна абнімаць (разм.). **3.** Друкаваць з дапамогай друкарскага прэса (спец.). ‖ *аднакр.* **ціскану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **ці́сканне**, -я, *н.*

**ЦІСКІ́**, -о́ў. **1.** Прыстасаванне для заціску і трымання прадмета пры яго апрацоўцы. **2.** *перан.* Тое, што пазбаўляе свабоды дзеяння, ставіць у цяжкае, бязвыхаднае становішча. ◊ **Узяць у ціскі** — 1) прыгнятаючы, поўнасцю падпарадкаваць сабе; 2) пра двухбаковы ахоп войск праціўніка. ‖ *прым.* **ціско́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЦІСНЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Выцісканне на чым-н. (скуры, метале і пад.) рэльефных узораў, адбіткаў. **2.** Рэльефны адбітак, узор, атрыманы такім спосабам. *Шпалеры з залатым цісненнем.*

**ЦІСНЁНЫ**, -ая, -ае. **1.** Атрыманы пры дапамозе ціснення (у 1 знач.). *Ц. ўзор.* **2.** З цісненнем (у 2 знач.). *Сумка з каляровай ціснёнай скуры.*

**ЦІ́СНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *незак.* **1.** Прыціскацца, набліжацца да каго-, чаго-н. *Ц. адзін да аднаго, каб*

*хутчэй выйсці.* **2.** Жыць у цеснаце. *Дзве сям'і цісну́ліся ў адным пакойчыку.* **3.** Пасоўвацца, набліжацца цясней адзін да аднаго, каб вызваліць месца. **4.** *перан.* Скупіцца, скнарнічаць (разм.). *Раскашэльвайся, не трэба так ц.*

**ЦІ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *незак.* **1.** *каго-што* і *на што.* Налягаць сваім цяжарам на каго-, што-н.; націскаць. *Ц. нагой на рыдлёўку. Ц. на кнопку званка.* **2.** *перан.* Прыгнятаць, душыць. *Боль ціснуў грудзі.* **3.** Сціскаць. *Крыгі ціснулі лодку. Ц. руку.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Быць цесным, сціскаць цела (пра абутак, адзежу). *Чаравікі ціснуць. Пінжак ціснe ў плячах.* **5.** *перан.* Настойваць, дамагацца, напіраць, прымушаць. *На яго ціснулі, прымушалі завяршыць работу.* **6.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Мучыць, турбаваць празмернымі цяжкасцямі. *У час вайны людзей ціснуў голад.* **7.** Прыціскаць, туліць. *Маці ціснула дзіця да грудзей.* **8.** *што.* Выціскаць. *Ц. сок з яблык. Ц. алей.* **9.** Рабіць (віно, гарэлку) саматужным спосабам; гнаць (разм.). **10.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Павялічвацца, узмацняцца (пра мароз, холад). *Мароз ціснe.* **11.** Старацца закончыць, завяршыць якую-н. творчую работу (разм.). *Ц. дысертацыю.* ‖ *наз.* **ціск**, -у, *м.* (да 1 знач.).

**ЦІ́ТАЎКА**, -і, *ДМ* -таўцы, *мн.* -і, -тавак, *ж.* **1.** Гатунак яблыні, якая дае буйныя кісла-салодкія плады. **2.** Плод гэтай яблыні.

**ЦІ́ТЛА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* У сярэдневяковай пісьменнасці: надрадковы знак у выглядзе ламанай рыскі над словамі, напісанымі скарочана, або над літарамі, калі яны абазначалі лічбу. ‖ *прым.* **ці́тлавы**, -ая, -ае.

**ЦІТР**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Надпіс на кадры ў кінафільме, што перадае словы дзеючых асоб. **2.** -у. У хіміі: канцэнтрацыя раствору, што ўжываецца для цітравання. ‖ *прым.* **ці́травы**, -ая, -ае.

**ЦІТРАВА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Асоба, якая займаецца цітраваннем. ‖ *ж.* **цітрава́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЦІТРАВА́ННЕ**, -я, *н.* У хіміі: выяўленне колькасці рэчыва, якое змяшчаецца ў якім-н. растворы, шляхам параўнання яго рэакцый з рэакцыямі раствору, канцэнтрацыя якога вядома.

**ЦІТРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *зак.* і *незак.* У хіміі: правесці (праводзіць) цітраванне.

**ЦІ́ЎКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Утвараць гукі, падобныя на «ціў-ціў». *Кураняты ціўкаюць. Над галавой ціўкалі кулі.* ‖ *аднакр.* **ці́ўкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **ці́ўканне**, -я, *н.*

**ЦІЎ-ЦІ́Ў**, *выкл.* Ужыв. гукаперайма́льна для абазначэння птушынага спеву, палёту куль і пад.

**ЦІХАМІ́РНЫ**, -ая, -ае. Спакойны, ціхі, рахманы. ‖ *наз.* **ціхамі́рнасць**, -і, *ж.*

**ЦІХАТА́**, -ы́, *ДМ* -хаце́, *ж.* (разм.). Тое, што і *цішыня.*

**ЦІХАХО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пра таго, хто (або што) мае невялікую хуткасць, павольна рухаецца, перамяшчаецца. *Конь малады, але, відаць, ц. Судна-ц.*

**ЦІХАХО́ДНЫ**, -ая, -ае. З ціхім, павольным ходам, рухам. *Ц. трамвай.* ‖ *наз.* **ціхахо́днасць**, -і, *ж.*

**ЦІХАЧО́М**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *цішком.*

**ЦІ́ХІ**, -ая, -ае. **1.** Ледзь чутны; нягучны. *Ц. голас. Ц. шум дрэў.* **2.** Агорнуты цішынёй; зацішны. *Ц. вечар.* **3.** Без адзнак вялікага руху, спакойны. *Ціхая вёсачка. Ціхае жыццё.* **4.** Лагодны, паслухмяны, пакорлівы. *Ц. чалавек. Па натуры яна дзяўчына ціхая.* **5.** Які праходзіць спакойна, без буйных праяў. *Ціхая радасць.* **6.** Які не вызначаецца хуткасцю, павольны, марудны. *Ціхая хада.* ‖ *памянш.-ласк.* **ці́хенькі**, -ая, -ае. ‖ *наз.* **ці́хасць**, -і, *ж.*

**ЦІХМЯ́НЫ**, -ая, -ае. Паслухмяны, пакорлівы, лагодны. ‖ *наз.* **ціхмя́насць**, -і, *ж.*

**ЦІ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; ціх, -хла; -ні; *незак.* (разм.). Сціхаць, змаўкаць. *Ціхнуць птушыныя галасы.*

**ЦІХО́НЯ**, -і, *ДМ* -ю, *Т* -ем, *м.; ДМ* -і, *Т* -яй (-яю), *ж., мн.* -і, -хо́нь. Ціхі, лагодны чалавек. *Ціхонем прыкінуўся.*

**ЦІХУ́СЕНЬКА**, *прысл.* (разм.). **1.** Вельмі ціха, бясшумна. *Ц. зарыпела рама акна.* **2.** Павольна, крок за крокам. *Коні ц. ішлі па гразкай дарозе.* **3.** Употай, цішком, каб ніхто не бачыў. *Як сцямнела, ён ц. залез у агуркі.*

**ЦІХУ́ТКА**, *прысл.* (разм.) **1.** Вельмі ціха, бясшумна. **2.** Паволі, марудна. **3.** Употай, цішком.

**ЦІХУ́ТКІ**, -ая, -ае. Вельмі ціхі. *Ц. ветрык кратаў галінкі дрэў.*

**ЦІШ** *і* **ЦІ́ША**, -ы, *ж.* **1.** Адсутнасць гукаў, шуму; спакой, цішыня. *У начной цішы чуваць далёкія выстралы.* **2.** Ціхае, бязветранае надвор'е.

**ЦІШКО́М**, *прысл.* **1.** Непрыкметна, паціху. *Ц. выйсці з хаты.* **2.** Ціха, нягучна, без шуму. *Ц. плакаць.*

**ЦІШЫНЯ́**, -і́, *ж.* **1.** Адсутнасць шуму, гукаў; маўчанне. *Вакол была незвычайная ц.* **2.** Душэўны спакой, уціхаміранне. *У душы — ц. і супакаенне.* **3.** *перан.* Адсутнасць баявых дзеянняў; зацішша.

**ЦІШЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е. Станавіцца ціхім, цішэйшым. *Вецер цішэе.*

**ЦКАВА́ЦЬ**, цкую́, цкуе́ш, цкуе́; цкуём, цкуяце́, цкую́ць; цкуй; цкава́ны; *незак., каго-што* і *без дап.* **1.** *кім.* Напускаць сабак на каго-н.; нацкоўваць. *Ц. сабакамі.* **2.** *перан.* Мучыць нападкамі, праследаваць. ‖ *зак.* **зацкава́ць**, -кую́, -куе́ш, -куе́; -куём, -куяце́, -кую́ць; -ку́й; -кава́ны. ‖ *наз.* **цкава́нне**, -я, *н.*

**ЦМА́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Прыцмокваць губамі, языком, выказваючы захапленне або незадаволенасць чым-н. — *Ну і стрэльба ж у цябе, браце! — цмакаў бывалы паляўнічы.* ‖ *наз.* **цма́канне**, -я, *н.*

**ЦМОК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У казках і народных паданнях: пачвара ў выглядзе змея, дракона. *Асілкі змагаліся з цмокам.*

**ЦМОК**[2], *выкл.* **1.** Ужыв. гукаперайма́льна для абазначэння адрывістага гуку, які атрымліваецца раптоўным раскрыццём сціснутых губ. **2.** *у знач. вык.* Ужыв. ў знач. дзеясл. цмокаць—цмокнуць (разм.). *Хлопчык ц. у шчаку бабулю.*

**ЦМО́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Гучна цалавацца. ‖ *аднакр.* **цмо́кнуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся. ‖ *наз.* **цмо́канне**, -я, *н.*

**ЦМО́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак.* **1.** Утвараць губамі гук, падобны на гук усмоктвання. **2.** *каго-што.* Гучна цалаваць (разм.). ‖ *аднакр.* **цмо́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **цмо́канне**, -я, *н.*

**ЦНАТЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які зберагае, захоўвае высокую мараль і чысціню чалавечых адносін. *Ц. юнак.* **2.** Які не страціў нявіннасці. ‖ *наз.* **цнатлі́васць**, -і, *ж.*

**ЦНО́ТА**, -ы, *ДМ* цно́це, *ж.* **1.** Маральная чысціня. **2.** Дзявочая нявіннасць.

**ЦНО́ТНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *цнатлівы.* ‖ *наз.* **цно́тнасць**, -і, *ж.*

**ЦО́КАЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Ніжняя патоўшчаная частка сцяны, збудавання, калоны, помніка, якая абапіраецца на фундамент. *Ц. калоны. Ц. шматпавярховага дома.* **2.** Металічная частка электрычнай лямпачкі, якая служыць для ўмацавання яе ў патроне (спец.). ‖ *прым.* **цо́кальны**, -ая, -ае. *Ц. паверх.*

**ЦО́КАТ**, -у, *М* -каце, *м.* Гукі цокання, удары ног, капытоў. *Ц. падкоў.*

**ЦО́КАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Утвараць адрывістыя кароткія гукі, стукаючы чым-н. цвёрдым аб камень, метал і пад. *Падковы цокаюць па бруку.* **2.** Утвараць кароткія звонкія гукі (пра птушак, звяроў і пад.). ‖ *аднакр.* **цо́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **цо́канне**, -я, *н.*

**ЦО́КАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *незак.* (спец.). Не адрозніваць гукі «ц» і «ч» пры вымаўленні ў некаторых народных гаворках. ‖ *наз.* **цо́канне**, -я, *н.*

**ЦО́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Тое, што і *цапаць.* ‖ *аднакр.* **цо́пнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **цо́панне**, -я, *н.*

**ЦОТ**, -у, *М* цо́це, *м.* Лік, які дзеліцца на два без астатку. ◊ **Цот і лішка** — гульня, пабудаваная на ўгадванні колькасці прадметаў, узятых у жменю вядучым гульні. *Гуляць у ц. і лішку.*

**ЦО́ТНЫ**, -ая, -ае. Лік, які пры дзяленні на два не мае астатку; кратны двум. ‖ *наз.* **цо́тнасць**, -і, *ж.*

**ЦУГ**, -а, *м.* **1.** Доўгі рад, чарада жывёл, птушак, машын і пад., якія рухаюцца адзін за адным. *Жураўліны ц. Ц. вагонаў.* **2.** Запрэжка, у якой коні (валы і пад.) ідуць гужам або парамі адзін за адным. ‖ *прым.* **цуга́вы**, -а́я, -о́е. *Цугавая запрэжка.*

**ЦУ́ГАМ**, *прысл.* **1.** Гужам, адзін за адным. *Коні ішлі ц.* **2.** Запрэжкай у дзве або тры пары коней, якія ідуць адна за адной.

**ЦУ́ГЛІ**, -яў. Два металічныя звяны, якія прымацаваны да рамянёў вуздэчкі і служаць для закілзвання каня. ‖ *прым.* **цу́глевы**, -ая, -ае.

**ЦУД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У рэлігійных уяўленнях: штосьці невытлумачальнае, звышнатуральнае, выкліканае ўздзеяннем Боскай сілы. *Спадзявацца на ц.* **2.** Пра тое, што здзіўляе сваёй незвычайнасцю, прыгажосцю, выклікае захапленне. *З цудаў ц.! Цуды гераізму.* **3.** *у знач. прысл.* **цу́дам**. Незвычайным, неверагодным чынам; выпадкова (разм.). *Дом ц. уцалеў пасля бамбёжкі. Ц. не спазніўся.* **4.** *у знач. вык.* Надзвычайна добры, непараўнальны. *Надвор'е сёння — ц.! Не кулеш, а ц.!* ◊ **Цуда ў рэшаце** (разм., жарт.) — пра што-н. незвычайнае або незразумелае. **Цуда-юда** — у казках: пачвара, страшыдла.

**ЦУДАДЗЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Вялікі майстар сваёй справы; той, хто ўмела, памастацку валодае чым-н. *А які ён на кухні ц.!* ‖ *ж.* **цудадзе́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -дзе́ек.

**ЦУДАДЗЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Незвычайнай сілы ўздзеяння, які творыць цуды. *Цудадзейная малітва.* **2.** Па ступені ўздзеяння ці праяўлення падобны на цуд; незвычайны, чароўны. *Цудадзейныя лекі. Цудадзейная музыка.* ‖ *наз.* **цудадзе́йнасць**, -і, *ж.*

**ЦУДАТВО́РАЦ**, -рца, *мн.* -рцы, -рцаў, *м.* **1.** У хрысціянстве: святы, які праславіўся дарам тварыць цуды (у 1 знач.). *У кутку гарэла лампадка перад абразамі цудатворцаў.* **2.** *перан.* Той, хто робіць што-н. дзівоснае, надзвычайнае. *Гэта быў не проста ўрач, а сапраўдны ц.*

**ЦУДАТВО́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які творыць цуды (у 1 знач.). *Ц. абраз.* **2.** Цудадзейны (у 2 знач.). *Цудатворныя таблеткі. Ц. клімат.* ‖ *наз.* **цудатво́рнасць**, -і, *ж.*

**ЦУДО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які ўспрымаецца як цуд. *Цудоўнае выратаванне.* **2.** Выдатны, адмысловы; вельмі добры. *Ц. будынак.* **3.** Які вызначаецца незвычайным талентам. *Ц. паэт.* **4.** Вельмі прыгожы, маляўнічы. *Ц. краявід. Ц. дзень.* **5.** Цікавы, захапляльны. *Цудоўная казка захапіла дзяцей.* **6.** Прыемны, дзіўны. *Ц. водар ліп.* **7.** Мілагучны (пра голас, гукі). *Ц. голас.* ‖ *наз.* **цудо́ўнасць**, -і, *ж.*

**ЦУ́КАР**, цу́кру, *м.* **1.** Крышталічнае спажыўнае салодкае рэчыва, якое атрымліваецца з цукровых буракоў або цукровага трыснягу. *Кілаграм цукру.* **2.** Назва некаторых арганічных злучэнняў, пераважна з групы вугляводаў (спец.). *Вінаградны ц.* ○ **Цукровая хвароба** — дыябет. ‖ *прым.* **цукро́вы**, -ая, -ае. *Цукровая пудра. Цукровая кукуруза.*

**ЦУ́КАРНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Прадмет чайнага посуду для цукру.

**ЦУКА́Т**, -у, *М* -ка́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Зацукраваны плод (звычайна цытрусавы) або яго скурка. *Торт з цукатамі.* ‖ *прым.* **цука́тны**, -ая, -ае.

**ЦУКЕ́РАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Кандытар, які вырабляе цукеркі. ‖ *ж.* **цуке́рачніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЦУКЕ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Салодкі кандытарскі выраб звычайна ў выглядзе плітачкі, шарыка і пад. *Шакаладныя цукеркі.* ‖ *памянш.-ласк.* **цуке́рачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **цуке́рачны**, -ая, -ае.

**ЦУКЕ́РНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Вазачка для цукерак.

**ЦУКО́РА**, -ы, *ж.* (разм.). Тое, што і *цыкорыя.* ‖ *прым.* **цуко́рны**, -ая, -ае.

**ЦУКРА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да цукру, напр.: *цукравытворчасць, цукровабурачны, цукраметр, цукразніжальны.*

**ЦУКРАВА́ННЕ**, -я, *н.* Утварэнне цукру, цукрыстых рэчываў у чым-н. *Ц. крухмалу.*

**ЦУКРАВА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па цукраварстве.

**ЦУКРАВА́РНЯ**, -і, *мн.* -і, -рань *і* -яў, *ж.* (разм.). Невялікі цукраварны завод.

**ЦУКРАВА́РСТВА**, -а, *н.* Прамысловая вытворчасць цукру з цукровых буракоў, трыснягу. ‖ *прым.* **цукрава́рны**, -ая, -ае.

**ЦУКРАВА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ру́ецца; *незак.* Гусцець, вылучаючы цукар; крышталізавацца ў цукар. *Мёд цукруецца. Варэнне цукруецца.*

**ЦУКРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак., што* (разм.). Пасыпаць, запраўляць цукрам, саладзіць. *Ц. кашу.*

**ЦУКРАЗАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Завод, на якім вырабляецца цукар (у 1 знач.). ‖ *прым.* **цукразаво́дскі**, -ая, -ае.

**ЦУКРАЗАВО́ДЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Уладальнік цукраварнага завода.

**ЦУКРАМЕ́ТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыбор для вымярэння канцэнтрацыі цукру ў растворах. ‖ *прым.* **цукраме́травы**, -ая, -ае.

**ЦУКРАНО́С**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Расліна, багатая цукрам. ‖ *прым.* **цукрано́сны**, -ая, -ае.

**ЦУКРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* цукар. **2.** Які мае адносіны да вытворчасці цукру. *Ц. завод.*

**ЦУКРО́ЗА**, -ы, *ж.* (спец.). Адзін з вугляводаў, які змяшчаецца ў цукраносных раслінах. ‖ *прым.* **цукро́зны**, -ая, -ае.

**ЦУКРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* Летні гатунак ігрушы з салодкімі пладамі, а таксама сам плод гэтага дрэва.

**ЦУКРЫ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які змяшчае ў сабе значную колькасць цукру (у 1 знач.). *Цукрыстыя плады.* **2.** Які мае структуру цукру. ‖ *наз.* **цукры́стасць**, -і, *ж.*

**ЦУНА́МІ**, *нескл., н.* Гіганцкія разбуральныя хвалі, якія ўзнікаюць на паверхні акіяна ў выніку падводнага землетрасення або вывяржэння падводных або астраўных вулканаў.

**ЦУР**, *выкл.* (разм.). Вокліч, якім што-н. забараняецца або патрабуецца выканаць якую-н. умову (звычайна ў дзіцячых гульнях). *Цур я першы!*

**ЦУРА́**, -ы́, *ж.* Страва з пакрышанага ў квас або ў ваду хлеба з соллю, цыбуляй, часам з алеем; рулі.

**ЦУРА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак., каго-чаго.* **1.** Пазбягаць каго-, чаго-н.; ухіляцца ад адносін з кім-н. або выканання чаго-н. *Ц. блізкіх. Ц. работы.* **2.** Адракацца ад каго-, чаго-н. *Ц. бацькоў.*

**ЦУРБА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *цурбан* (у 1 знач.). ‖ *памянш.* **цурбачо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.*

**ЦУРБА́ЛАК**, -лка, *мн.* -лкі, -лкаў, *м.* (разм.). Кусок дрэва, абрубак.

**ЦУРБА́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Абрубак, кароткі кавалак бервяна. **2.** *перан.* Пра някемлівага, непаваротлівага, неразумнага чалавека (разм., лаянк.). *Гэтаму цурбану не ўтлумачыш.*

**ЦУ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Тонкі аскепак лучынкі, трэскі, палачкі. ‖ *памянш.-ласк.* **цу́рачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **цу́рачны**, -ая, -ае.

**ЦУРО́К**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* **1.** Невялікі струменьчык вады, вадкасці. *Цуркі вады.* **2.** *у знач. прысл.* **цурко́м**. Струменем, бесперапынна (ліцца, цячы). *Пот ліецца ц.*

**ЦУРУ́БАЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* **1.** Прадаўгаваты кавалак дрэва; абломак сцябла, галінкі і пад. *Цурубалкі астраў.* **2.** Драўляны самаробны гузік у выглядзе кароткай круглай палачкі, падобнай на таўкачык. *Кажух зашпілены на цурубалкі.*

**ЦУРЧА́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ы́ць; *незак.* **1.** Цячы, ліцца цурком. **2.** Утвараць гукі булькання, пералівання (пра вадкасць). ‖ *наз.* **цурча́нне**, -я, *н.*

**ЦЫБА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Высокі, хударлявы. *Ц. хлопец.* **2.** Пра тонкія і доўгія ногі. *Дзяцюк заскакаў на сваіх цыбатых нагах.* ‖ *наз.* **цыба́тасць**, -і, *ж.*

**ЦЫ́БІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (гіст.). Скрынка з чаем вагой да двух пудоў. *Чай у цыбіках.*

**ЦЫБУ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Полы трубкападобны стрыжань курыльнай люлькі. **2.** Сцябло. *Кукурузныя цыбукі.* **3.** Вінаградны чаранок, які выкарыстоўваецца для пасадкі (спец.).

**ЦЫБУЛЕПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Па форме і выглядзе падобны на цыбулю. ‖ *наз.* **цыбулепадо́бнасць**, -і, *ж.*

**ЦЫБУ́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* **1.** Патоўшчаная частка (звычайна падземная) сцябла некаторых раслін. *Ц. цюльпана.* **2.** Галоўка цыбулі. *Пакрышыць цыбуліну ў суп.* **3.** Расшыраная частка некаторых органаў, частка арганізма. *Ц. воласа.* ‖ *памянш.-ласк.* **цыбу́лінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**ЦЫБУ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* цыбуля. **2.** Які па смаку, паху нагадвае цыбулю. *Цыбульная прыправа.*

**ЦЫБУ́ЛЯ**, -і, *ж.* **1.** Агароднінная расліна сямейства лілейных з цыбулінай у

падземнай частцы і трубчастымі лістамі зверху. *Пасадзіць цыбулю.* **2.** *зб.* Ядомыя трубчастыя лісты або падземныя галоўкі гэтай расліны. *Зялёная ц. Рэпчатая ц.* **3.** Назва некаторых травяністых цыбульных раслін сямейства лілейных. *Ц. мядзведжая.* ‖ *памянш.-ласк.* **цыбу́лька**, -і, *ДМ* -льцы, *ж.* ‖ *прым.* **цыбу́льны**, -ая, -ае. *Сямейства цыбульных* (наз.).

**ЦЫБУ́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Сцябло, звычайна полае і пругкае. *Цыбуры сланечніку.*

**ЦЫВІЛІЗАВА́НЫ**, -ая, -ае. Які з'яўляецца носьбітам цывілізацыі (у 2 знач.). ‖ *наз.* **цывілізава́насць**, -і, *ж.*

**ЦЫВІЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* Далучыць (далучаць) да цывілізацыі (у 2 знач.). ‖ *звар.* **цывілізава́цца**, -зу́юся, -зу́ешся, -зу́ецца; -зу́йся.

**ЦЫВІЛІЗА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (звычайна іран.). Носьбіт культуры, цывілізацыі. ‖ *прым.* **цывілізі́атарскі**, -ая, -ае. *Цывілізатарская місія.*

**ЦЫВІЛІЗА́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Ступень грамадскага развіцця, яе матэрыяльнай і духоўнай культуры, характэрная для той ці іншай грамадска-палітычнай фармацыі. *Антычная ц.* **2.** Сучасная сусветная культура (у 1 знач.).

**ЦЫВІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Не ваенны, не вайсковы; грамадзянскі. *Ц. касцюм.*

**ЦЫГА́НАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** *Памянш.-ласк.* да цыганка. **2.** Руская народная музыка, якая нагадвае музыку цыганскіх народных песень, а таксама танец пад такую музыку. *Іграць цыганачку. Скакаць цыганачку.*

**ЦЫГА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., што* і *без дап.* (разм.). Выпрошваць, выманьваць. ‖ *зак.* **вы́цыганіць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены.

**ЦЫГАНЫ́**, -о́ў, *адз.* -га́н, -а́, *м.* Народ індыйскага паходжання, які жыве пераважна качавымі і паўкачавымі этнічнымі групамі ў розных краінах свету. ‖ *ж.* **цыга́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **цыга́нскі**, -ая, -ае. *Ц. табар.*

**ЦЫГА́РА**, -ы, *мн.* -га́р, *ж.* Туга скручанае ў трубку тытунёвае лісце для курэння. *Курыць цыгары.* ‖ *прым.* **цыга́рны**, -ая, -ае. *Ц. дым.*

**ЦЫГАРАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Падобны па форме і выглядзе на цыгару. *Ц. дырыжабль.*

**ЦЫГА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Папяроса-самакрутка. ‖ *прым.* **цыга́рачны**, -ая, -ае *і* **цыга́ркавы**, -ая, -ае.

**ЦЫГАРЭ́ТА**, -ы, *ДМ* -рэ́це, *мн.* -ы, -рэ́т, *ж.* Папяроса без муштука. ‖ *прым.* **цыгарэ́тны**, -ая, -ае.

**ЦЫГАРЭ́ТНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Партсігар для захоўвання цыгарэт.

**ЦЫГЕ́ЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *ж.* Футра, выробленае са шкуры авечкі цыгейскай пароды. *Каўнер з цыгейкі.* ‖ *прым.* **цыге́йкавы**, -ая, -ае. *Цыгейкавая шапка.*

**ЦЫКА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ка́д, *ж.* Насякомае падатрада цыкадавых з празрыстымі крыламі, самцы якога ўтвараюць характэрнае стракатанне. ‖ *прым.* **цыка́дны**, -ая, -ае. *Ц. строкат.*

**ЦЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае (разм.). **1.** *на каго (што).* Спыняць каго-н. вокрыкам «цыц», «ц-с-с», прыкрыкваць, забараняючы рабіць што-н. *Дзед цыкаў на дзяцей, каб не сваволілі.* **2.** Сплёўваць сліну праз зубы. ‖ *аднакр.* **цы́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **цы́канне**, -я, *н.*

**ЦЫКЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Заканамернае, рэгулярнае кола якіх-н. з'яў, дзеянняў, працэсаў. *Гадавы ц. вярчэння Зямлі.* **2.** Сукупнасць навук, аб'яднаных па якім-н. агульным прынцыпе. *Гістарычны ц.* **3.** Шэраг, паслядоўны закончаны рад чаго-н. *Ц. вершаў. Ц. лекцый. Ц. песень.* ‖ *прым.* **цыклавы́**, -а́я, -о́е (да 2 і 3 знач.) *і* **цыклі́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЦЫКЛАНА́ЛЬНЫ** *гл.* цыклон.

**ЦЫКЛАНІ́ЧНЫ** *гл.* цыклон.

**ЦЫКЛАМЕ́Н**, -у, *м.* Травяністая шматгадовая расліна сямейства першакветных з яркімі кветкамі; альпійская фіялка.

**ЦЫКЛАПІ́ЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Аб старажытных збудаваннях: масіўны, гіганцкі.

**ЦЫКЛАТРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Устаноўка для паскарэння энергіі руху зараджаных часцінак (пратонаў або іонаў). ‖ *прым.* **цыклатро́нны**, -ая, -ае.

**ЦЫКЛЁЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па цыклёўцы.

**ЦЫКЛІЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Аб'яднанне ў цыкл. *Ц. рускіх былін.*

**ЦЫКЛІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* цыкл. **2.** Які адбываецца цыкламі (у 1 знач.). *Цыклічнае развіццё.* ‖ *наз.* **цыклі́чнасць**, -і, *ж. Ц. вытворчасці. Графік цыклічнасці.*

**ЦЫКЛО́Н**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у. Віхравы бурны рух атмасферы ў вялікім радыусе, утвораны вакол месцаў з нізкім атмасферным ціскам. **2.** -а. Апарат для аддзялення цвёрдых часціц ад газу. ‖ *прым.* **цыкло́нны**, -ая, -ае, **цыклана́льны**, -ая, -ае *і* **цыклані́чны**, -ая, -ае. *Цыклонны вецер. Цыкланічная дзейнасць* (узнікненне цыклонаў і антыцыклонаў).

**ЦЫКЛО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У старажытнагрэчаскай міфалогіі: магутны волат з адным вокам у лбе. **2.** Дробная драпежная членістаногая жывёліна атрада веслаhistoногіх рачкоў.

**ЦЫ́КЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* (спец.). Стальная пласцінка з вострым кантам, прызначаная для зачысткі драўляных вырабаў, паркету і інш.

**ЦЫКЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны; *незак., што.* Рабіць гладкай, роўнай драўляную паверхню з дапамогай цыклявальнай машыны. *Ц. дошкі.* ‖ *зак.* **адцыклява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -ля́ваны. ‖ *наз.* **цыклёўка**, -і, *ДМ* -лёўцы, *ж.* *і* **цыклява́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **цыклява́льны**, -ая, -ае. *Ц. станок.*

**ЦЫКО́РЫЯ**, -і, *ж.* Расліна сямейства складанакветных, сушанае карэнне якой дадаецца ў натуральную каву або выкарыстоўваецца для прыгатавання сурагату кавы. *Кава з цыкорыяй.* ‖ *прым.* **цыко́рны**, -ая, -ае.

**ЦЫКУ́ТА**, -ы, *ДМ* -ку́це, *ж.* Ядавітая травяністая балотная ці вадзяная расліна сямейства парасонавых.

**ЦЫЛІ́НДР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Геаметрычнае цела, якое ўтвараецца вярчэннем прамавугольніка вакол аднаго з яго бакоў. **2.** Прадмет такой формы. **3.** Высокі цвёрды мужчынскі капялюш з палямі. ‖ *прым.* **цыліндры́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **цылі́ндравы**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.).

**ЦЫМБАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Музыкант, які іграе на цымбалах. ‖ *ж.* **цымбалі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ЦЫМБА́ЛЫ**, -аў. Народны музычны інструмент у выглядзе трапецападобнай скрынкі з металічнымі струнамі, па якіх удараюць драўлянымі малаточкамі. ‖ *прым.* **цымба́льны**, -ая, -ае. *Цымбальныя струны.*

**ЦЫ́МУС**, -у, *м.* **1.** Аб вельмі прыгожым, вельмі цікавым, найлепшым (разм.). **2.** Салодкая дэсертная страва з тушанай морквы і іншых інгрэдыентаў. **3.** Самае істотнае, значнае (разм.). *У гэтай карціне ўвесь ц.* ‖ *прым.* **цы́мусны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ЦЫНГА́**, -і́, *ДМ* -нзе́, *ж.* Хвароба, выкліканая недахопам вітамінаў у арганізме, выражаецца разрыхленнем і крываточывасцю дзяснаў, агульнай слабасцю і пад. ‖ *прым.* **цынго́тны**, -ая, -ае. *Цынготныя дзясны.*

**ЦЫНІ́ЗМ**, -у, *м.* Пагардлівыя адносіны да агульнапрынятых норм маралі; бессаромнасць, нахабства.

**ЦЫ́НІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Цынічны чалавек.

**ЦЫНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Поўны цынізму, бессаромны. *Ц. жэст.* ‖ *наз.* **цыні́чнасць**, -і, *ж.*

**ЦЫ́НІЯ**, -і, *мн.* -і, -ній, *ж.* Травяністая дэкаратыўная расліна сямейства складанакветных з буйнымі яркімі кветкамі. *Расквітнелі цыніі і флоксы.* ‖ *прым.* **цы́ніевы**, -ая, -ае.

**ЦЫНК**, -у, *м.* Хімічны элемент, коўкі метал сінявата-белага колеру. ‖ *прым.* **цы́нкавы**, -ая, -ае.

**ЦЫНКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -ка́ваны; *незак., што* (спец.). Пакрываць слоем цынку паверхню металічных вырабаў для аховы ад карозіі. ‖ *зак.* **ацынкава́ць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -ка́ваны. ‖ *наз.* **цынкава́нне**, -я, *н.*

**ЦЫНКАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* **1.** Выраб фотамеханічным спосабам цынкавых клішэ для друку. **2.** Прадпрыемства або цэх па вырабе такіх клішэ. ‖ *прым.* **цынкагра́фі́чны**, -ая, -ае.

**ЦЫНКІ́Т**, -у, *М* -кі́це, *м.* Мінерал чырвонага колеру, цынкавая руда, якая слу-

**ЦЯПЛІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* цяпліца. **2.** *перан.* Спешчаны; які ахоўваецца кім-, чым-н. ад цяжкасцей. *Цяплічныя ўмовы.*

**ЦЯПЛО́**, -á, *н.* **1.** Нагрэты стан чаго-н. (пра тэмпературу паветра, памяшкання, прадмета). *На вуліцы адзін градус цяпла. Ц. рукі.* **2.** Цёплае надвор'е; цёплая пара года. **3.** *перан.* Сардэчныя, добрыя адносіны. *Іх заўсёды яднала ц. дружбы.*

**ЦЯПЛУ́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). Таварны вагон, прыстасаваны для перавозкі людзей. || *прым.* **цяплу́шачны**, -ая, -ае.

**ЦЯПЛЫ́НЬ**, -і, *ж.* Тое, што і *цеплыня* (часцей пра надвор'е).

**ЦЯ́ПНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; -нуты; *зак.* (разм.). **1.** *гл.* цяпаць. **2.** *каго-што.* Укусіць, схапіць зубамі. *Сабака цяпнуў за палец.* **3.** *што* і *чаго.* Выпіць спіртнога. *Ц. чарку.* **4.** *каго.* Стукнуць, ударыць каго-н. *Ц. па галаве.*

**ЦЯРНІ́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Калючы; пакрыты шыпамі (пра хмызняк, кусты і пад.). *Ц. куст.* **2.** *перан.* Цяжкі, пакутлівы. *Ц. шлях яму давялося прайсці.* || *наз.* **цярні́стасць**, -і, *ж.*

**ЦЯРНО́ВЫ** *гл.* цёрн.

**ЦЯРНО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ноўцы, *ж.* Наліўка з пладоў цёрну або цернасліву.

**ЦЯРПЕ́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Здольнасць цярпець, стойка пераносіць жыццёвыя нягоды. *Няма цярпення слухаць яе скаргі.* **2.** Настойлівасць, уменне захоўваць вытрымку ў якой-н. справе, рабоце. *Работа з дзецьмі патрабуе вялікага цярпення.* ◊ **Цярпенне лопнула** (разм.) — не хапіла вытрымкі.

**ЦЯРПЕ́ЦЦА**, -піцца; *безас., незак.* (разм.). Пра магчымасць цярпець. *Хлопчыку не цярпелася хутчэй даведацца.*

**ЦЯРПЕ́ЦЬ**, -плю, -піш, -піць; -пім, церпіце́, -пя́ць; -пі́; *незак.* **1.** *што* і *без дап.* Мужна, стойка пераносіць фізічныя і маральныя пакуты. *Ц. боль. Ц. непрыемнасці.* **2.** *каго-што.* Мірыцца з наяўнасцю каго-, чаго-н.; пагаджацца з кім-, чым-н. *Не ц. каго-небудзь. Не ц. пярэчання.* **3.** *што.* Зносіць што-н. непрыемнае. *Ц. няўдачу.* **4.** *ад чаго.* Несці страты; атрымліваць пашкоджанні ад чаго-н., псавацца. *Пасевы церпяць ад засухі.* **5.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Не патрабаваць тэрміновага выканання, хуткага рашэння. || *зак.* **пацярпе́ць**, -плю, -піш, -піць; -пім, церпіце́, -пя́ць; -пі́.

**ЦЯРПІ́МЫ**, -ая, -ае. **1.** Такі, які можна цярпець, з якім можна мірыцца. *Цярпімыя ўмовы жыцця.* **2.** Які ўмее мірыцца з кім-, чым-н.; памяркоўны. *Цярпімыя адносіны да чаго-н.* || *наз.* **цярпі́масць**, -і, *ж.* *Ц. да чужых выказванняў.*

**ЦЯРПЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Надзелены вялікім цярпеннем. *Ц. чалавек. Цярплівыя адносіны. Цярпліва* (прысл.) *тлумачыць заданне.* || *наз.* **цярплі́васць**, -і, *ж.*

**ЦЯСА́К**, цесака́, *мн.* цесакі́, цесако́ў, *м.* **1.** Халодная зброя ў выглядзе шырокага, вострага з абодвух бакоў клінка з крыжападобнай ручкай. **2.** Цяслярская сякера для часання дрэва (спец.).

**ЦЯСЛА́**, -ы́, *мн.* цёслы *і (з ліч. 2, 3, 4)* цяслы́, цёслаў, *ж.* (уст.). Цяслярская прылада з паўкруглым лязом для выдзёўбвання карыт, начовак і пад.

**ЦЯСЛЯ́Р**, цесляра́, *мн.* цесляры́, цесляро́ў, *м.* Рабочы, які займаецца грубай апрацоўкай драўніны, узвядзеннем драўляных будынкаў і пад. || *прым.* **цясля́рскі**, -ая, -ае.

**ЦЯСЛЯ́РСТВА**, -а, *н.* Рамяство, занятак цесляра. *Займацца цяслярствам.*

**ЦЯСЛЯ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* Выконваць цяслярскія работы. *Ён яшчэ на поўную сілу цяслярыў.* || *наз.* **цясля́ранне**, -я, *н.*

**ЦЯСНІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -нін, *ж.* Вузкая, глыбокая рачная даліна з крутымі стромкімі схіламі. *Глыбокая ц. ракі.*

**ЦЯСНІ́ЦЦА**, -нюся, -нішся, -ніцца; -німся, цесніцеся, -ня́цца; *незак.* (разм.). **1.** Размяшчацца ў вялікай колькасці на невялікай прасторы блізка адзін ад аднаго. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Захапляць, напаўняць сабою (пра думкі, пачуцці). *У галаве цясніліся думкі.* **3.** Рухацца, станавіцца цясней, вызваляючы месца для каго-, чаго-н.; пацясняцца.

**ЦЯСНІ́ЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; -ні́м; цесніце́, -ня́ць; *незак., каго-што.* **1.** Прымушаць адступіць; адцясняць. *Ц. варожыя флангі.* **2.** Абмяжоўваць каго-н. у прасторы, плошчы. *Не буду я вас ц., паеду да сына.* **3.** Сціскаць, спіраць (грудзі, дыханне і пад.). *Яна адчувала, як ёй цясніла дыханне.*

**ЦЯСНО́ТА**, -ы, *ДМ* -ноце, *ж.* (разм.). Тое, што і *цесната.*

**ЦЯ́ЎКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Адрывіста брахаць (пра сабаку, лісяня, шчаня). *Лісяня цяўкала, як сабака.* || *аднакр.* **ця́ўкнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. || *наз.* **ця́ўканне**, -я, *н.*

**ЦЯЦЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -цёр, *ж.* (разм.). **1.** Тое, што і *цецярук.* **2.** *перан.* Пра някемлівага, няспрытнага чалавека (разм., неадабр.). ◊ **Глухая цяцера** (груб.) — абразлівы выраз, які ўжываецца ў адносінах да глухога чалавека. **Сонная цяцера** — пра вялага, соннага чалавека.

**ЦЯЦЕ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Самка цецерука.

**ЦЯЦЬ**, тну, тнеш, тне; тнём, тняце́, тнуць; цяў, цяла́, -ло́; тні *і* **ТНУЦЬ**, тну, тнеш, тне; тнём, тняце́, тнуць; тнуў, тну́ла; тні; *зак., каго-што* і *без дап.* **1.** Ударыць, стукнуць чым-н. *Цяў (тнуў) яму кулаком у грудзі.* **2.** Балюча ўкусіць. *Сабака цяў (тнуў) за нагу.*

**ЦЯЧЫ́**, 1 і 2 ас. не ўжыв., цячэ́; цяку́ць; цёк, цякла́, -ло́; *незак.* **1.** Ліцца струменем, патокам у якім-н. напрамку. *Рака цячэ між гор. Кроў цячэ з раны.* **2.** *перан.* Бесперапынна плаўна гучаць. *Цякуць гукі музыкі.* **3.** Прапускаць вадкасць у выніку няспраўнасці (праз дзірку, адтуліну і пад.). *Вядро цячэ.* **4.** *перан.* Праходзіць, працякаць (пра час). *Цякуць гады.* || *наз.* **цячэ́нне**, -я, *н.* (да 1 і 4 знач.).

**ЦЯЧЭ́ННЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** *гл.* цячы. **2.** Рух вады ў рацэ, а таксама вада, якая рухаецца. *Хуткае ц. ракі.* ◊ **Плысці па цячэнні** — прыстасоўвацца да абставін, не выказваючы супраціўлення.

# Ч

**ЧАБА́Н**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* Пастух авечых статкаў. *Чабаны пагналі атары авечак.* || *прым.* **чаба́нскі**, -ая, -ае.

**ЧАБА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.* Быць чабаном.

**ЧАБО́Р**, -бару́, *мн.* -бары́, -баро́ў, *м.* Травяністая духмяная расліна сямейства ясноткавых з дробнымі пахучымі кветкамі ружова-ліловага ці белага колеру. || *памянш.* **чабаро́к**, -рку́, *м.* || *прым.* **чабаро́вы**, -ая, -ае.

**ЧАБУРЭ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Страва народаў Усходу ў выглядзе плоскага піражка з тонкага раскачанага прэснага цеста, начыненага баранінай з вострымі прыправамі. || *прым.* **чабурэ́чны**, -ая, -ае.

**ЧАБУРЭ́ЧНАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Закусачная, дзе падаюць чабурэкі і іншыя ўсходнія стравы.

**ЧАВЫ́ЧА**, -ы *і* **ЧАВЫЧА́**, -ы́, *ж.* Прамысловая рыба сямейства ласасёвых. || *прым.* **чавычо́вы**, -ая, -ае.

**ЧА́ГА**, -і, *ДМ* ча́зе, *ж.* Чорны грыб у выглядзе нарасці на ствале бярозы. || *прым.* **ча́гавы**, -ая, -ае.

**ЧАД**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** Удушлівы атрутны газ, які ўтвараецца пры няпоўным згаранні вугалю з прычыны недастатковага прытоку паветра. *Ад чаду балела галава.* **2.** Едкі, удушлівы дым, утвораны пры гарэнні (звычайна тлушчу). **3.** *перан.* Стан самазабыцця, нястрымнага праяўлення якіх-н. пачуццяў. || *прым.* **ча́дны**, -ая, -ае.

**ЧА́ДЗЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *незак.* Атручвацца чадам (у 1 знач.). || *зак.* **уча́дзець**, -ею, -ееш, -ее.

**ЧАДЗІ́ЦЬ**, -джу́, -дзіш, -дзіць; -дзі́м, -дзіце́, -дзя́ць; *незак.* **1.** Утвараць чад, ку-

родымець, курэць. *Лямпа чадзіць. Печ чадзіць.* **2.** Напускаць чаду, дыму. *Не чадзі ты папяросай.* ‖ *зак.* **начадзíць**, -чаджу́, -ча́дзіш, -ча́дзіць.

**ЧАДРА́**, -ы́, *мн.* чадры́, ча́драў, чадра́м, *ж.* У мусульман: лёгкае жаночае пакрывала на ўвесь рост, якое закрывае галаву і твар (акрамя вачэй) і спускаецца да ног. ‖ *прым.* **чадро́вы**, -ая, -ае.

**ЧАЕ...** (а таксама **чая...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да чаю (у 1, 2 знач.), напр.: *чаедрабілка, чаесушыльны, чаеўборачны, чаеўпаковачны.*

**ЧАЕАПРАЦО́ЎКА**, -і, *ДМ* -цо́ўцы, *ж.* Апрацоўка чаю (у 1 знач.).

**ЧАЙ**, -ю, *мн.* (пры абазначэнні гатункаў) чаі́, чаёў, *м.* **1.** Вечназялёная расліна (дрэва або куст) сямейства чайных, лісце якой выкарыстоўваецца для прыгатавання духмянага напою. *Плантацыі чаю. Вырошчаваць ч.* **2.** Высушаныя і асобым спосабам апрацаваныя лісты гэтай расліны, на якіх настойваюць духмяны танізуючы напой. *Зялёны ч. Заварыць ч. Купіць пачак чаю.* **3.** Гарачы напой, настоены на лісці гэтай расліны. *Моцны ч. Выпіць чаю.* **4.** Настой на травах, карэннях, кветках і пад., які выкарыстоўваецца пераважна як лекавы сродак. *Ліпавы ч. Грудны ч.* **5.** Чаяпіцце, чаяванне. *Запрасіць на ч.* ◊ **На чай** (даваць, браць; разм.) — узнагарода, звычайна грашовая, за дробныя паслугі (афіцыянту, швейцару); чаявыя. ‖ *прым.* **ча́йны**, -ая, -ае. *Ч. куст.*

**ЧА́ЙКА**[1], -і, *ДМ* ча́йцы, *мн.* -і, ча́ек, *ж.* Вадаплаўная пералётная птушка сямейства чайкавых з кароткімі нагамі, доўгімі крыламі і густым апярэннем, якая жыве на берагах мораў, рэк, азёр. *Белакрылая ч.* ‖ *прым.* **ча́йкавы**, -ая, -ае. *Сямейства чайкавых* (наз.).

**ЧА́ЙКА**[2], -і, *ДМ* ча́йцы, *мн.* -і, ча́ек, *ж.* Пласкадонная лодка; пласкадонка. *Падплысці на чайцы.*

**ЧАЙНА́Я**, -о́й, *мн.* -ы́я, -ы́х, *ж.* Грамадская сталовая, дзе наведвальнікі могуць выпіць чаю і паесці.

**ЧАЙНВО́РД**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Род задачы-галаваломкі на адгадванне слоў, размешчаных у клетачках такім чынам, што апошняя літара папярэдняга слова з'яўляецца першай літарай наступнага і г.д. ‖ *прым.* **чайнво́рдны**, -ая, -ае.

**ЧА́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Пасудзіна з носікам і ручкай для заваркі чаю або для гатавання вады. *На пліце кіпеў ч.* ‖ *памянш.-ласк.* **ча́йнічак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* ‖ *прым.* **ча́йнікавы**, -ая, -ае.

**ЧА́ЙНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Пасудзіна для захоўвання сухога чаю.

**ЧА́ЙНЫ 1.** *гл.* чай. **2.** Звязаны з вытворчасцю, апрацоўкай, захоўваннем, продажам чаю. *Чайная фабрыка.* ○ **Чайная ружа** — гатунак ружы з кветкамі бледнажоўтага колеру.

**ЧАЙХАНА́**, -ы́, *мн.* -ы́, -ха́н, *ж.* Чайная ў краінах Сярэдняй Азіі, Іране.

**ЧАЙХА́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Уладальнік чайханы, а таксама той, хто абслугоўвае чайхану.

**ЧАКА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з чаканнем; насцярожаны. *Чакальная поза.*

**ЧАКА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* (разм.). Пакой для чакання ў якой-н. установе.

**ЧАКА́Н**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Штэмпель для выбівання відарысаў на паверхні металічных вырабаў (манет, медалёў і пад.). **2.** Адбітак відарыса на паверхні металічнага вырабу; чаканка. **3.** Слясарны інструмент у выглядзе зубіла, прызначаны для чаканкі. **4.** Старажытная ручная халодная зброя — разнавіднасць баявой сякеры з доўгім дзяржаннем і насаджаным на яго вузкім лязом у выглядзе дзюбы, а таксама малаткападобным абухом на канцы (гіст.).

**ЧАКА́Н**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Птушка сямейства драздовых з чорным або чорнабурым апярэннем галавы. *Чорнагаловы ч.* ‖ *прым.* **чака́навы**, -ая, -ае.

**ЧАКА́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., што.* **1.** Выбіваць на паверхні металічных вырабаў рэльефны адбітак або ўзор. *Ч. манеты.* **2.** *перан.* Выразна, рэзка аддзяляць адно ад другога (крокі, словы, гукі і інш.). *Ч. крок. Ч. словы.* **3.** Апрацоўваць (краі заклёпачных швоў металічных вырабаў; спец.). **4.** Абразаць ці абломваць верхавінкі сцябла або бакавых парасткаў для ўзмацнення плоданашэння і хутчэйшага паспявання; пасынкаваць (спец.). ‖ *зак.* **вы́чаканіць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены (да 1 знач.), **адчака́ніць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены (да 1 і 2 знач.), **расчака́ніць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены (да 3 знач.) *і* **прачака́ніць**, -ню, -ніш, -ніць; -нены (да 4 знач.). ‖ *наз.* **чака́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *ж. і* **чака́ненне**, -я, *н.*

**ЧАКА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* **1.** *гл.* чаканіць. **2.** *мн.* -і, -нак. Рэльефны адбітак, выкананы на металічным вырабе. *Шабля, упрыгожаная чаканкай.* **3.** Апрацаваная паверхня металу, загладжанае шво, трэшчына і пад. (спец.).

**ЧАКА́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Прызначаны для чаканкі (у 1 знач.). *Ч. станок.* **2.** Выраблены шляхам чаканкі (у 1 знач.); упрыгожаны чаканкай (у 2 знач.). **3.** *перан.* Ясны, выразны, дакладны. *Ч. крок.* ‖ *наз.* **чака́ннасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**ЧАКА́НШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па чаканцы (у 1 знач.). ‖ *ж.* **чака́ншчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **чака́ншчыцкі**, -ая, -ае.

**ЧАКА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -а́ецца; *незак.* Аб тым, што мае быць, што павінна адбыцца. *Заўтра чакаецца добрае надвор'е.*

**ЧАКА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *каго-чаго, з дадан.* і *без дап.* Знаходзіцца, заставацца дзе-н., разлічваючы на чый-н. прыход, з'яўленне і пад. каго-, чаго-н. ці здзяйсненне чаго-н. *Ч. таварыша. Аўтобус чакаў пасажыраў.* **2.** *чаго, з дадан.* і *з інф.* Спадзявацца, прадбачваць што-н., разлічваць на што-н. *Ён ужо нічога добрага не чакаў. Ч. вясцей. Ён не чакаў сустрэць тут знаёмага.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *каго-што.* Быць наканаваным каму-н., прадбачыцца. *Яго чакалі непрыемнасці. Ніхто не ведае, што яго чакае.* **4.** *заг.* **чака́й(це)**. Ужыв. як папярэджанне, пагроза: як я табе дам! Я табе пакажу! і пад. *Зноў падмануў? Ну чакай жа!* ◊ **Не чакай дабра** — пра магчымасць бяды, непрыемнасці ад каго-, чаго-н. **Чакаць з мора пагоды** (разм., неадабр.) — спадзявацца, разлічваць на што-н., застаючыся пасіўным; безнадзейна чакаць. **Чакаць не дачакацца** (разм.) — з нецярпеннем, прагна чакаць. ‖ *наз.* **чака́нне**, -я, *н.*

**ЧАКМЕ́НЬ**, -мяня́, *мн.* -мяні́, -мянёў, *м.* Старадаўняе верхняе мужчынскае адзенне каўказскага тыпу ў выглядзе паўкафтана, пашытага ў талію са зборкамі ззаду.

**ЧАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прычальны канат для рачнога судна.

**ЧАЛАБІ́ТНАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* (гіст.) У Расіі да 18 ст.: пісьмовае прашэнне, скарга, якая падавалася на імя цара ці мясцовым уладам.

**ЧАЛАБІ́ТЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (гіст.) У Расіі 18 ст.: той, хто падае чалабітную. ‖ *ж.* **чалабі́тчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЧАЛАБІ́ЦЦЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** У Старажытнай Русі: паклон з дакрананнем ілбом да зямлі (уст.). **2.** Падача чалабітнай (гіст.).

**ЧАЛАВЕ́К**, -а, *мн.* лю́дзі, -е́й *і (у спалучэнні з колькаснымі словамі)* чалаве́кі, чалаве́к, чалаве́кам, чалаве́камі, (аб) чалаве́ках, *м.* **1.** Найбольш развітая жывая істота, якая валодае мысленнем і маўленнем, здольнасцю ствараць прылады працы і мэтанакіравана іх выкарыстоўваць. *Сучасны ч. Ч. — разумная істота.* **2.** Муж; мужчына (разм.). *Пражыла жанчына са сваім чалавекам доўгае жыццё.* **3.** Асоба, якой уласцівы высокія маральныя і інтэлектуальныя якасці. *З яго будзе ч. Жыццё зрабіла з яго чалавека.* **4.** Ужыв. ў знач. займенніка: ён, нехта, той. *Ч. не аглянецца, як міне год. Трэба ратаваць чалавека.* **5.** У часы прыгоннага права: дваровы слуга, лакей, а пазней — афіцыянт, слуга ў тракціры, рэстаране (уст.). ‖ *памянш.-ласк.* **чалаве́чак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **чалаве́чы**, -ая, -ае (да 1 знач.) ◊ **Божы чалавек** (уст.) — старац. **Добры чалавек** — ласкавы зварот да незнаёмага. **Малады чалавек** — зварот да маладога мужчыны або мужчыны маладзейшага ўзросту. ‖ *прым.* **чалаве́чы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Чалавечая постаць. Чалавечыя слабасці.*

**ЧАЛАВЕКА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да людзей, да чалавека, напр.: *чалавекападобны, чалавекалюбец, чалавекалюбства, чалавеканенавіснік.*

**ЧАЛАВЕ́КА-ГАДЗІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -дзі́н, *ж.* Адзінка ўліку рабочага часу, якая вы-

мяраецца колькасцю працы, выкананай адным чалавекам за адну рабочую гадзіну.

**ЧАЛАВЕ́КА-ДЗЕ́НЬ**, -дня́, *мн.* -дні́, -дзён, *м.* Адзінка ўліку рабочага часу, якая вымяраецца колькасцю працы, выкананай адным чалавекам за рабочы дзень.

**ЧАЛАВЕКАЛЮ́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *чалавекалюбец.*

**ЧАЛАВЕКАЛЮ́БЕЦ**, -бца, *мн.* -бцы, -бцаў, *м.* Той, хто любіць людзей, гатовы дапамагчы ім; гуманіст.

**ЧАЛАВЕКАЛЮБІ́ВЫ**, -ая, -ае. Які любіць людзей; вызначаецца чалавекалюбствам; гуманны.

**ЧАЛАВЕКАЛЮ́БНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *чалавекалюбівы.*

**ЧАЛАВЕКАЛЮ́БСТВА**, -а, *н.* Любоў да людзей; міласэрнасць, гуманнасць.

**ЧАЛАВЕКАНЕНАВІ́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто ненавідзіць людзей, чалавецтва. ‖ *ж.* **чалавеканенаві́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЧАЛАВЕКАНЕНАВІ́СНІЦТВА**, -а, *н.* Нянавісць да людзей, да чалавецтва. ‖ *прым.* **чалавеканенаві́сніцкі**, -ая, -ае.

**ЧАЛАВЕКАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Падобны на чалавека. ○ **Чалавекападобныя малпы** — назва сямейства малпаў, да якога адносяцца гарыла, арангутан, шымпанзэ і гібон.

**ЧАЛАВЕ́ЦТВА**, -а, *н.* Людзі планеты, чалавечы род; чалавечае грамадства.

**ЧАЛАВЕ́ЧА**, *К* ад назоўніка «чалавек», *м.* (разм.). Ужыв. як ветлівы зварот да незнаёмага мужчыны. *Адкуль ты, ч.?*

**ЧАЛАВЕ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Дастойны чалавека, уважлівы, чулы, душэўны; гуманны. *Чалавечныя адносіны да людзей. Ён паступіў чалавечна* (прысл.) *у гэтай сітуацыі.* ‖ *наз.* **чалаве́чнасць**, -і, *ж.*

**ЧАЛАВЕ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* чалавек. **2.** Тое, што і *чалавечны. Чалавечыя адносіны. Паступіць па-чалавечы* (прысл.).

**ЧАЛАВЕ́ЧЫНА**[1], -ы, *м.* і *ж.* (разм., жарт. ці неадабр.). Тое, што і *чалавек* (у 1 знач.).

**ЧАЛАВЕ́ЧЫНА**[2], -ы, *ж.* (разм.). Мяса чалавека як ежа для драпежных звяроў.

**ЧАЛЕ́СНІКІ**, -аў. Адтуліна, жарало за прыпечкам у печы. *Чыгун ледзь пралез у ч.* ‖ *прым.* **чале́снічны** -ая, -ае *і* **чале́снікавы**, -ая, -ае.

**ЧА́ЛІЦЬ**, -лю, -ліш, -ліць; *незак., што* (спец.). Прыцягваючы, прымацоўваць чалам. *Ч. баржу.* ‖ *наз.* **ча́ленне**, -я, *н.*

**ЧАЛМА́**, -ы́, *мн.* чалмы́, ча́лмаў, чалма́м, *ж.* Мужчынскі галаўны ўбор у мусульман: доўгі кавалак тканіны, абгорнуты некалькі разоў вакол галавы. ‖ *прым.* **чалмо́вы**, -ая, -ае.

**ЧАЛО́**, -а́, *мн.* чо́лы *і (з ліч. 2, 3, 4)* чалы́, чо́лаў, *н.* (высок.). Лоб. *Высокае ч.*

**ЧАЛЯДЗІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). **1.** Дваровы чалавек, слуга ў панскім доме. **2.** Той, хто належыць да чэлядзі (у 1 знач.).

**ЧАЛЯДЗІ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* (гіст.). Тое, што і *чалядзін* (у 1 знач.). ‖ *ж.* **чалядзі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ЧАЛЯ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (гіст.). Рамеснік у цэхавага майстра ў феадальных гарадах Беларусі, Літвы, Польшчы. ‖ *прым.* **чаля́дніцкі**, -ая, -ае.

**ЧАМАДА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дарожная сумка прамавугольнай формы з адкідным векам і ручкай для перавозкі рэчаў. ‖ *памянш.* **чамада́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **чамада́нны**, -ая, -ае. ◊ **Чамаданны настрой** (разм., жарт.) — паходны настрой перад ад'ездам куды-н.

**ЧАМУ́**[1], *прысл.* **1.** *пыт.* З якой прычыны. *Ч. ты спазніўся?* **2.** *адноснае.* Ужыв. ў якасці злучальнага слова ў дапаўняльных сказах і адпавядае словам: па якой прычыне. *Маці даведалася, ч. сын спазніўся.* **3.** *у знач. злуч.* Далучае сказы са знач. выніку і адпавядае словам: таму, у выніку гэтага. *Бацька захварэў. Вось ч. не паехаў у горад.*

**ЧАМУ́**[2] *гл.* што[1].

**ЧАМУ́-НЕ́БУДЗЬ**[1], *прысл.* Па якой-небудзь прычыне.

**ЧАМУ́-НЕ́БУДЗЬ**[2] *гл.* што-небудзь.

**ЧАМУ́СЬ**, *прысл.* (разм.). Тое, што і *чамусьці*[1].

**ЧАМУ́СЬЦІ**[1], *прысл.* Па нейкай прычыне, чагосьці. *Усе сабраліся, а ён ч. не прыйшоў.*

**ЧАМУ́СЬЦІ**[2] *гл.* штосьці[1].

**ЧАМЯРЫ́ЦА**, -ы, *ж.* Травяністая ядавітая лугавая расліна сямейства лілейных з тоўстым карэнішчам, буйным востраканечным лісцем і мяцёлкамі кветак, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне. ‖ *прым.* **чамяры́чны**, -ая, -ае. *Ч. корань.*

**ЧАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вялікая драўляная або металічная пасудзіна, якая формай нагадвае бак. ‖ *прым.* **чанавы́**, -а́я, -о́е. *Ч. пасол рыбы.*

**ЧА́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Ісці павольна, не спяшаючыся. *Давялося ч. звыш дваццаці кіламетраў.*

**ЧАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *каго-што.* Дакранацца, датыкацца да каго-, чаго-н. *Не чапай рукамі!* **2.** *што.* Браць, карыстацца (разм.). *Не чапай майго нічога.* **3.** *каго-што.* Закранаць, турбаваць каго-н.; крыўдзіць (разм.). *Не чапай яго, няхай спіць.* **4.** *каго-што.* Умешвацца ў чые-н. справы; перашкаджаць каму-н. (разм.). *Не чапай дзяцей, хай гуляюць.* **5.** *каго-што.* Знішчаць, вынішчаць; прыносіць шкоду каму-, чаму-н. *Нельга ч. птушыныя гнёзды.* **6.** Нападаць на каго-, што-н. *Воўк падышоў блізка, але авечак не чапаў.*

**ЧАПЕ́ЛЬНЫ** *гл.* чапяла.

**ЧАПЕ́Ц**, -пца́, *мн.* -пцы́, -пцо́ў, *м.* Лёгкі галаўны ўбор у выглядзе шапачкі, завязанай пад барадой, які раней насілі замужнія жанчыны. ‖ *памянш.* **чэ́пчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.*

**ЧАПІ́ЦЦА**, чаплю́ся, чэ́пішся, чэ́піцца; *незак.* (разм.). **1.** Зачэплівацца за што-н. **2.** *перан.* Прыдзірацца, прыставаць да каго-н. *Чаго ты чэпішся да яго?*

**ЧАПІ́ЦЬ**, чаплю́, чэ́піш, чэ́піць; *зак., каго-што* і *чаго* (разм.). Закрануць, зачапіць. *Куля чапіла косць нагі.*

**ЧА́ПЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Вялікая балотная птушка сямейства галянастых з вялікай дзюбай і доўгай шыяй.

**ЧАПЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак.* **1.** *за каго-што.* Кранаць, датыкацца, зачэпліваючы што-н. *Кузаў машыны чапляўся за галіны.* **2.** *за каго-што.* Хапацца, трымацца за што-н.; падчэплівацца, павісаць на чым-н. *Ч. на плот. Дзяцел чапляецца кіпцюрамі за кару. Ч. на падножку трамвая.* **3.** *перан., за што.* Імкнуцца любым чынам утрымаць, зберагчы што-н.; выкарыстаць усе сродкі, магчымасці для дасягнення чаго-н. *Усё старое ўпарта чапляецца за жыццё.* **4.** *перан.* Прыдзірацца да каго-, чаго-н.; прыставаць да каго-н.; назаляць (разм.). *Чаго ты да мяне чапляешся?* ‖ *наз.* **чапля́нне**, -я, *н.*

**ЧАПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* **1.** *за каго-што.* Тое, што і *чапляцца* (у 1 знач.). **2.** *што.* Падчэпліваць, браць чым-н. вострым. *Ч. скварку на відэлец.* **3.** *што на што.* Вешаць (разм.). *Ч. фіранкі.* **4.** *што.* Надзяваць што-н. (разм.). *Ч. акуляры.* **5.** Тое, што і *чапляцца* (у 4 знач.). ‖ *наз.* **чапля́нне**, -я, *н.*

**ЧАПРА́К**, -у́, *м.* Найбольш тоўстая і моцная частка скуры на спіне жывёлы, што ідзе на выраб падэшвы і на тэхнічныя патрэбы. ‖ *прым.* **чапра́чны**, -ая, -ае.

**ЧАПУРЫ́СТЫ**, -ая, -ае (разм.). Які любіць чапурыцца, прыбірацца. ‖ *наз.* **чапуры́стасць**, -і, *ж.*

**ЧАПУРЫ́ЦЦА**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; -ры́мся, -рыце́ся, -ра́цца; *незак.* (разм.). Прыхарошвацца, прыбірацца. *Дзяўчаты чапурыліся на гулянне.* ‖ *зак.* **прычапуры́цца**, -ру́ся, -ры́шся, -ры́цца; -ры́мся, -рыце́ся, -ра́цца.

**ЧАПУРЫ́ЦЬ**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; *незак., каго-што* (разм.). Прыхарошваць, прыбіраць. ‖ *зак.* **прычапуры́ць**, -ру́, -ры́ш, -ры́ць; -ры́м, -рыце́, -ра́ць; -пу́раны.

**ЧАПЯЛА́**, -ы́, *мн.* чапёлы *і (з ліч. 2, 3, 4)* чапялы́, -пёл, *ж.* Спецыяльна загнутая на канцы лапатачка з ручкай для захоплівання гарачай скаварады.

**ЧАПЯЛЬНІ́К**, чапельніка́, *мн.* чапельнікі́, чапельніко́ў, *м.* Ручка чапялы.

**ЧА́РА**, -ы, *мн.* -ы, чар, *ж.* (уст., паэт.). Шкляная пасудзіна для піцця віна, часта з рознымі ўпрыгожаннямі.

**ЧАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *незак.* **1.** Паводле народных павер'яў: уздзейнічаць чарамі, магічнымі прыёмамі на людзей. **2.** *перан., каго-што.* Захапляць, вабіць. *Дзяўчына чаравала ўсіх сваёй прыгажосцю.* ‖ *наз.* **чарава́нне**, -я, *н.*

**ЧАРАВІ́КІ**, -аў, *адз.* чараві́к, -а, *м.* Невысокі, да шчыкалаткі і крыху вышэй, скураны абутак на шнурках. ‖ *памянш.* **чараві́чкі**, -аў, *адз.* -чак, -чка, *м.* ‖ *прым.* **чараві́чны**, -ая, -ае.

**ЧАРАДА́**, -ы́, *ДМ* -дзé, *мн.* чарóды *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) чарады́, чарóд, *ж.* **1.** Рад аднародных прадметаў, жывых істот, якія размяшчаюцца або рухаюцца адзін за адным. *Ч. машын. Ч. хмар.* **2.** Статак, гурт жывёл, група птушак, рыб аднаго віду. *Ч. авечак. Ч. кароў. Ч. птушак.* **3.** Гурт, натоўп (людзей). *Ч. хлопчыкаў. Ч. мужчын.* **4.** Чарга. *Заўтра яго ч. пасвіць кароў.* **5.** *у знач. прысл.* **чарадóй (-óю)**. Адзін за другім; бесперапынна. *Думкі плылі чарадой.*

**ЧАРАДЗЕ́Й**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Вядзьмар, чараўнік. **2.** *перан.* Той, хто зачароўвае, захапляе чым-н. ‖ *ж.* **чарадзéйка**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -дзéек. ‖ *прым.* **чарадзéйскі**, -ая, -ае.

**ЧАРАДЗЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які валодае магічнай, звышнатуральнай сілай. *Чарадзейнае зелле.* **2.** Які захапляе, чаруе. *Чарадзейная сіла слова.* ‖ *наз.* **чарадзéйнасць**, -і, *ж.*

**ЧАРАДЗЕ́ЙСТВА**, -а, *н.* **1.** Вядзьмарства, чары. **2.** *перан.* Тое, што і *чары* (у 2 знач.).

**ЧАРАМША́**, -ы́, *ж.* Від дзікарослай цыбулі, па смаку і паху падобнай на часнок; мядзведжая цыбуля.

**ЧАРАНКАВА́ЦЬ**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; -кавáны; *незак., што* (спец.). Разводзіць, вырошчваць расліны пры дапамозе чаранкоў. ‖ *зак.* **адчаранкавáць**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; -кавáны. ‖ *наз.* **чаранкавáнне**, -я, *н.*

**ЧАРАНО́К**, -нкá, *мн.* -нкí, -нкóў, *м.* **1.** Частка сцябла, галінкі з пупышкамі ад расліны, прызначаная для прышчэпкі і пасадкі. **2.** Вузкая частка ліста, якая злучае яго са сцяблом. ‖ *прым.* **чаранкóвы**, -ая, -ае.

**ЧАРАПА́ХА**, -і, *ДМ* -пáсе, *мн.* -і, -пáх, *ж.* **1.** Жывёліна атрада паўзуноў, пакрытая касцявым панцырам, якая вельмі павольна рухаецца на кароткіх лапах, што могуць разам з галавой і хвастом уцягвацца ў панцыр. *Марская ч.* **2.** *зб.* Рагавыя пласцінкі панцыра гэтай жывёлы, а таксама вырабы з такіх пласцінак. ‖ *памянш.* **чарапáшка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* ‖ *прым.* **чарапáхавы**, -ая, -ае *і* **чарапáшы**, -ая, -ае.

**ЧАРАПА́ШКА**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** *гл.* чарапаха. **2.** Насякомае атрада клапоў, небяспечны шкоднік злакавых раслін.

**ЧАРАПА́ШЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* чарапаха. **2.** *перан.* Вельмі павольны. *Ч. крок. Чарапашыя тэмпы работы.*

**ЧАРАПІ́ЦА**, -ы, *ж.* **1.** *зб.* Тое, што і *дахоўка. Дом пакрыты чарапіцай.* **2.** Асобная пласцінка з абпаленай гліны — плоская ці з пазамі і выступамі. ‖ *прым.* **чарапíчны**, -ая, -ае. *Ч. дах.*

**ЧАРАПІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* чарапіца. **2.** Прызначаны для вырабу чарапіцы. *Ч. завод.*

**ЧАРАПІ́ЧЫНА**, -ы, *мн.* -ы, -чын, *ж.* (разм.). Тое, што і *чарапіца* (у 2 знач.).

**ЧАРАПНЫ́** *гл.* чэрап.

**ЧАРАПО́К**, -пкá, *мн.* -пкí, -пкóў, *м.* **1.** Тое, што і *чэрап* (у 1 знач.). **2.** Абломак, асколак разбітай глінянай, фарфоравай, шкляной і пад. пасудзіны. ‖ *прым.* **чарапкóвы**, -ая, -ае.

**ЧАРАЎНІ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* **1.** У казках і павер'ях: той, хто валодае чарамі; вядзьмар. *Злы ч. ператварае чалавека ў жабу.* **2.** Знахар, лекар. **3.** *перан.* Чалавек, здольны захапіць чым-н., зачараваць. *Ч. слова. Ч. беларускай паэзіі.* ‖*ж.* **чараўніца**, -ы, *ДМ* -ніцы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **чараўніцкі**, -ая, -ае.

**ЧАРАЎНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** *гл.* чараўнік. **2.** *перан.* Пра вельмі прыгожую жанчыну. ‖ *прым.* **чараўніцкі**, -ая, -ае.

**ЧАРАЎНІ́ЦТВА**, -а, *н.* **1.** Сіла, дзеянні чараўніка; вядзьмарства, чары. **2.** Дзеянні знахара шляхам замоў; знахарства. ‖ *прым.* **чараўніцкі**, -ая, -ае *і* **чараўні́чы**, -ая, -ае.

**ЧАРАЎНІ́ЧЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* чараўніцтва. **2.** *перан.* Які выклікае захапленне, зачароўвае; чароўны. *Чараўнічыя мясціны палачанскіх азёраў.*

**ЧАРА́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** Моцна стукнуць па чым-н. *Ч. па патыліцы.* **2.** Стрэліць кароткай чаргой з аўтаматычнай зброі. *Ч. з аўтамата.* **3.** Разануць чым-н. вострым. *Ч. нажом.*

**ЧАРАЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -цін, *ж.* Адна сцябліна чароту.

**ЧАРАЦЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Пеўчая птушка атрада вераб'інападобных, якая жыве ў чароце і ўзбярэжных кустах. *Трашчаць няспынна чарацянкі.*

**ЧАРВА́**, -ы́, *ж., зб.* (спец.). Лічынкі пчол.

**ЧАРВІ́ВЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *незак.* Станавіцца чарвівым. *Грыбы чарвівеюць.* ‖ *зак.* **зачарвíвець**, -ее, **счарвíвець**, -ее *і* **ачарвíвець**, -ее.

**ЧАРВІ́ВЫ**, -ая, -ае. Паточаны чарвямі, з чарвямі ўнутры. *Ч. яблык. Ч. грыб.* ‖ *наз.* **чарвíвасць**, -і, *ж.*

**ЧАРВІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -віць; *незак.* (спец.). Адкладваць яйцы, пладзіць чарву (пра пчол).

**ЧАРВЯ́К**, -á, *мн.* -í, -óў *і* чэ́рві, чарвéй, *м.* **1.** Беспазваночны жывёльны арганізм з доўгім мяккім целам, без канечнасцей і ярка выражанай галавы. **2.** *перан.* Пра нікчэмнага, агіднага чалавека (пагард.). **3.** *перан., чаго.* Пра пачуццё або стан, якія працяглы час турбуе, назаляе. *Яго мучыў ч. нуды.* **4.** Від шрубы для перадачы вярчэння ў некаторых механізмах (спец.). ○ **Дажджавы чарвяк** — чырвоны земляны чарвяк. **Расні́чныя чэрві** — клас плоскіх чарвей з целам, пакрытым раснічкамі. **Шаўкавічны чарвяк** — вусень тутавага шаўкапрада. ◊ **Замарыць чарвяка** (разм.) — злёгку перакусіць, прагнаць голад. ‖ *памянш.* **чарвячóк**, -чкá, *мн.* -чкí, -чкóў, *м.* (у 1—3 знач.). ‖ *прым.* **чарвякóвы**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **чарвя́чны**, -ая, -ае (да 4 знач.; спец.). *Чарвячная перадача.*

**ЧАРГА́**, -í, *ДМ* -рзé, *мн.* чэ́ргі *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) чаргí, чэ́рг *і* -аў, *ж.* **1.** Парадак, паслядоўнасць у руху каго-, чаго-н. *Стаяць у чарзе за білетамі.* **2.** Чыё-н. месца ў такім парадку. *Прапусціць сваю чаргу.* **3.** Людзі, якія размясціліся паслядоўна адзін за адным з якой-н. мэтай. *У касу была вялікая ч.* **4.** Спіс асоб, якія павінны атрымаць што-н. у парадку чарговасці. *Ч. на атрыманне кватэры.* **5.** Пэўная колькасць патронаў, выпушчаных кулямётам, аўтаматам за адзін прыём. *Аўтаматная ч.* ◊ **Жывая чарга** — чарга, якая патрабуе абавязковай прысутнасці ўсіх, хто заняў яе. **Заняць чаргу** — стаць або запісацца ў чаргу за чым-н. **У сваю чаргу** — са свайго боку; адпаведна.

**ЧАРГАВА́ЦЦА**, -гýюся, -гýешся, -гýецца; -гýйся; *незак.* **1.** Паслядоўна, па чарзе заменьваць адно другім; перыядычна паўтарацца. **2.** У лінгвістыцы: заканамерна замяняцца адзін другім (пра гукі) у каранях або афіксах роднасных слоў або форм. ‖ *наз.* **чаргавáнне**, -я, *н.*

**ЧАРГАВА́ЦЬ**, -гýю, -гýеш, -гýе; -гýй; *незак., каго-што.* Паслядоўна зменьваць адно другім, размяшчаць адно за адным. *Ч. работу з адпачынкам.* ‖ *наз.* **чаргавáнне**, -я, *н.*

**ЧАРГО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Наступны за папярэднім. *Чарговае заданне. Ч. аўтобус будзе праз гадзіну.* **2.** Які адбываецца рэгулярна, у пэўнай паслядоўнасці. *Чарговая сесія.* **3.** Які паўтараецца рэгулярна час ад часу. *Чарговая сустрэча.* ‖ *наз.* **чаргóвасць**, -і, *ж.*

**ЧА́РДАШ**, -а *і* **ЧАРДА́Ш**, -á, *м.* Венгерскі народны танец, а таксама музыка ў рытме гэтага танца.

**ЧА́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Невялікая шкляначка, часта на ножцы, прызначаная для піцця спіртных напіткаў. **2.** Спіртное; выпіўка (разм.). *Ён ніколі не адказваўся ад чаркі.* ‖ *памянш.* **чáрачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* ‖ *прым.* **чáрачны**, -ая, -ае (да 1 знач.). ◊ **Глядзець у чарку** (разм., іран.) — любіць выпіць. **Заглядаць у чарку** (разм., іран.) — выпіваць. **Пад чаркай** (разм.) — п'янаваты.

**ЧАРКЕ́СЫ**, -аў, *адз.* -кéс, -а, *м.* Народ, які жыве ў Карачаева-Чаркескай Рэспубліцы, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **чаркéшанка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **чаркéскі**, -ая, -ае.

**ЧАРЛЬСТО́Н**, -а, *м.* Амерыканскі танец з чатырохдольным рытмам — разнавіднасць хуткага факстрота, а таксама музыка да гэтага танца.

**ЧАРНА...** (*гл.* **чорна...**). Першая састаўная частка складаных слоў, ужыв. замест «чорна...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *чарнабровы, чарнакрылы, чарнабурка.*

**ЧАРНАБРО́ВЫ**, -ая, -ае. З чорнымі бровамі. *Чарнабровая дзяўчына.*

**ЧАРНАБУ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (разм.). Чорна-бурая ліса, а так-

сама футра, каўнер з такой лісы. *Паліто з чарнабуркай.*

**ЧАРНАВАТА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: з чорным адценнем, напр.: *чарнавата-ліловы, чарнавата-сіні, чарнавата-фіялетавы.*

**ЧАРНАВІ́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Чарнавы рукапіс. *Апавяданне ў чарнавіку. Ч. сачынення.*

**ЧАРНАВÓКІ**, -ая, -ае. З чорнымі вачамі. *Ч. хлопец.*

**ЧАРНАВУ́СЫ**, -ая, -ае. З чорнымі вусамі. *Ч. мужчына.*

**ЧАРНАВЫ́**, -áя, -óе. **1.** Напісаны начарна; неканчатковы. *Ч. варыянт рукапісу.* **2.** Прызначаны для запісу начарна. *Ч. сшытак.* **3.** Дапаможны, падсобны (пра работу). **4.** Звязаны з першапачатковай стадыяй вытворчасці. *Чарнавая фрэзероўка.* **5.** Са значнай колькасцю прымесей (пра металлы; спец.). *Чарнавая медзь.*

**ЧАРНАГÓРЦЫ**, -аў, *адз.* -рац, -рца, *м.* Паўднёваславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Чарнагорыі. ‖ *ж.* **чарнагóрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **чарнагóрскі**, -ая, -ае.

**ЧАРНАГРЫ́ВЫ**, -ая, -ае. З чорнай грывай. *Ч. конь.*

**ЧАРНАЗЁМ**, -у, *м.* Урадлівая перагнойная глеба цёмнага колеру. ‖ *прым.* **чарназёмны**, -ая, -ае.

**ЧАРНАКНІ́ЖЖА**, -а, *н.* (уст.). Чараўніцтва, вядзьмарства па кнігах, якія быццам бы маюць магічную сілу. ‖ *прым.* **чарнакні́жны**, -ая, -ае.

**ЧАРНАКНІ́ЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Той, хто займаецца чарнакніжжам.

**ЧАРНАЛÉССЕ**, -я, *н.* Ліставы лес.

**ЧАРНАМА́ЗЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Смуглявы і чорнавалосы. *Ч. хлопчык.* **2.** Брудны, мурзаты.

**ЧАРНАМÓРАЦ**, -рца, *мн.* -рцы, -рцаў, *м.* Марак Чарнаморскага флоту.

**ЧАРНАПЛÓДНЫ**, -ая, -ае. У выразе: **чарнаплодная рабіна** — дрэва або куст сямейства ружакветных, які дае плады ў выглядзе лілова-чорных ягад.

**ЧАРНАРЫ́ЗНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (уст.). Манах, чарнец.

**ЧАРНАСКУ́РЫ**, -ая, -ае. З цёмнай, чорнай скурай.

**ЧАРНАСЛІ́Ў**, -лі́ву, *м., зб.* Сушаныя плады слівы асобага сорту.

**ЧАРНАСÓЦЕНЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* **1.** У царскай Расіі: член рэакцыйна-манархісцкіх пагромных арганізацый — чорных соцень (гіст.). **2.** Крайні рэакцыянер, шавініст.

**ЧАРНАСÓЦЕННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да чарнасоценцаў, уласцівы чарнасоценцам (гіст.). **2.** Рэакцыйна-шавіністычны.

**ЧАРНАТА́** *гл.* чорны.

**ЧАРНÉЦ**, -няцá, *мн.* -няцы́, -няцóў, *м.* (уст.). Манах. ‖ *ж.* **чарні́ца**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц.

**ЧАРНÉЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -éецца; *незак.* Тое, што і *чарнець* (у 2 знач.). *Удалечыні чарнелася сцяна лесу.*

**ЧАРНÉЦЬ**, -éю, -éеш, -éе; *незак.* **1.** Станавіцца чорным, цёмным або чарнейшым, цямнейшым. *Золата не чарнее. Смуглявы твар ад сонца яшчэ больш чарнеў.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вылучацца сваім колерам (пра што-н. чорнае, цёмнае). *На гарызонце чарнеў лес.* ‖ *зак.* **счарнéць**, -éю, -éеш, -éе (да 1 знач.) *і* **пачарнéць**, -éю, -éеш, -éе (да 1 знач.).

**ЧАРНІ́ЛА**, -а, *н.* Водны раствор якога-н. каляровага рэчыва, прызначанага для пісання. *Пісаць чарнілам. Чорнае ч.* ○ **Сімпатычнае чарніла** — бясколерная або слаба афарбаваная вадкасць, якая выкарыстоўваецца ў тайнай перапісцы. ‖ *прым.* **чарні́льны**, -ая, -ае. *Ч. прыбор. Чарнільная пляма.* ○ **Чарнільны арэшак** — арэхападобная чорная нарасць на лісці дуба і некаторых іншых дрэў, якая раней служыла для вырабу чарніла. ◊ **Чарнільная душа** (уст., неадабр.) — пра канцылярскага чыноўніка-фармаліста.

**ЧАРНІ́ЛІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ліц, *ж.* Невялікая спецыяльная пасудзіна для чарніла. *Шкляная ч.*

**ЧАРНІЛЬНА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: з чарнільным адценнем, напр.: *чарнільна-ліловы, чарнільна-чорны.*

**ЧАРНІ́ЦЫ**, -ніц, *адз.* чарні́ца, -ы, *ж.* **1.** Кустовая дзікарослая ягадная расліна сямейства брусні́чных. **2.** Чорна-сінія ягады гэтай расліны. *Кампот з чарніц.* ‖ *прым.* **чарні́чны**, -ая, -ае.

**ЧАРНІ́ЦЬ**, чарню́, чэ́рніш, чэ́рніць; чэ́рнены; *незак.* **1.** *што.* Рабіць чорным, фарбаваць у чорны колер. *Ч. бровы.* **2.** *перан., каго-што.* Няславіць, ганьбаваць каго-, што-н. *Не трэба ч. людзей.* **3.** *што.* Тое, што і *вараніць.* ‖ *зак.* **счарні́ць**, -чарню́, -чэ́рніш, -чэ́рніць; -чэ́рнены (да 1 і 2 знач.), **зачарні́ць**, -чарню́, -чэ́рніш, -чэ́рніць; -чэ́рнены (да 1 знач.), **начарні́ць**, -чарню́, -чэ́рніш, -чэ́рніць; -чэ́рнены (да 1 знач.) *і* **ачарні́ць**, -чарню́, -чэ́рніш, -чэ́рніць; -чэ́рнены (да 2 знач.). ‖ *наз.* **чарнéнне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**ЧАРНІ́ЧНІК**, -у, *м.* Сцёблы, кусцікі, на якіх растуць чарніцы, а таксама месца, зарослае кустамі чарніц.

**ЧАРНÓБЫЛЬ**, -ю, *м.* Шматгадовая травяністая расліна сямейства складанакветных з чырванавата-бурым сцяблом; разнавіднасць палыну. ‖ *прым.* **чарнóбыльны**, -ая, -ае.

**ЧАРНÓТА** *гл.* чорны.

**ЧАРНУ́ШКА**[1], -і, *ДМ* -шцы, *ж.* Аднагадовая травяністая расліна сямейства казяльцовых, чорнае насенне якой выкарыстоўваецца як вострая прыправа. *Хлеб з чарнушкай.* ‖ *прым.* **чарну́шкавы**, -ая, -ае.

**ЧАРНУ́ШКА**[2], -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). Смуглая чорнавалосая, чарнавокая жанчына, дзяўчынка.

**ЧАРНЯ́ВЫ**, -ая, -ае. Цёмнавалосы. *Ч. хлопчык.*

**ЧАРÓМХА**, -і, *ДМ* -мсе, *ж.* Дрэва ці куст сямейства ружакветных з сабранымі ў гронкі белымі пахучымі кветкамі і чорнымі даўкімі на смак ягадамі. ‖ *прым.* **чарóмхавы**, -ая, -ае. *Ч. куст. Чаромхавае варэнне.*

**ЧАРÓПКА**[1], -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* (разм.). Тое, што і *чарапок.*

**ЧАРÓПКА**[2], -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* (разм.). Тое, што і *чэрап* (у 1 знач.); галава.

**ЧАРÓТ**, -у, *М* -рóце, *мн.* чараты́, чаратóў, *м.* Высокая вадзяная або балотная расліна сямейства асаковых, а таксама зараснік гэтай расліны. ‖ *прым.* **чарóтавы**, -ая, -ае *і* **чараця́ны**, -ая, -ае.

**ЧАРÓЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Надзвычайна прыгожы; які зачароўвае, захапляе. *Чароўная дзяўчына. Чароўная музыка.* **2.** Які мае адносіны да чараў (у 1 знач.); казачны, таемны. *Чароўная сіла. Чароўная папарацькветка.* ‖ *наз.* **чарóўнасць**, -і, *ж.*

**ЧАРÓЦІНА**, -ы, *мн.* -ы, -цін, *ж.* (разм.). Тое, што і *чараціна.*

**ЧАРÓЦІСТЫ**, -ая, -ае. Парослы чаротам. *Чароцістае балота.*

**ЧАРПА́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* **1.** Коўш, пасудзіна для чэрпання якой-н. вадкасці. **2.** Частка машыны, механізма (экскаватара і інш.) у выглядзе каўша, які служыць для выбірання грунту. ‖ *прым.* **чарпакóвы**, -ая, -ае.

**ЧАРПА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). Прылада, пасудзіна для чэрпання. *Выліць з лодкі ваду чарпалкай.*

**ЧАРПА́ЛЬНЫ** *гл.* чэрпаць.

**ЧАРСЦВÉЦЬ**, -éю, -éеш, -éе; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Станавіцца чэрствым (у 1 знач.), чарсцвейшым. *Хлеб чарсцвее.* **2.** *перан.* Станавіцца бяздушным, траціць чуласць, спагадлівасць. *Людзі з цяжкім лёсам не чарсцвеюць душой.* ‖ *зак.* **счарсцвéць**, -éю, -éеш, -éе, **зачарсцвéць**, -ée (да 1 знач.), **учарсцвéць**, -ее (да 1 знач.), **ачарсцвéць**, -éю, -éеш, -éе (да 2 знач.) *і* **пачарсцвéць**, -éю, -éеш, -éе. ‖ *наз.* **чарсцвéнне**, -я, *н.*

**ЧАРТАПАЛÓХ**, -у, *М* -лóсе, *м.* Шматгадовая калючая расліна сямейства складанакветных з перыстарассечаным лісцем і пурпурова-сінімі кветкамі. *Каля паркана буяў ч.* ‖ *прым.* **чартапалóхавы**, -ая, -ае.

**ЧА́РТАР**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У міжнародных марскіх, паветраных, сухапутных перавозках: дагавор на арэнду транспартнага сродку на вызначаны рэйс або тэрмін. **2.** Самалёт або судна, арандаванае згодна з такім дагаворам. ‖ *прым.* **ча́ртарны**, -ая, -ае. *Ч. рэйс.*

**ЧАРТАЎШЧЫ́НА**, -ы, *ж.* **1.** *зб.* Усё тое, што звязана з нячыстай сілай. **2.** *перан.* Нешта неверагоднае, незразумелае, недарэчнае (разм.). *Усю ноч вярзлася нейкая ч.*

**ЧАРТÓЎСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* чорт. **2.** Праклятыя, ненавісны, страшэнны. **3.** Незвычайна моцны па ступені свайго праяўлення (разм.). *Чартоўская вышыня. Ч. характар.*

**ЧАРТЫХА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* (разм.). Лаяцца, памінаючы чорта. ‖ *аднакр.* **чартыхну́цца**, -ну́ся, -не́шся, -не́цца; -нёмся, -няцёся, -ну́цца; -ні́ся. ‖ *наз.* **чартыха́нне**, -я, *н.*

**ЧАРЦЁЖ**, -цяжа, *мн.* -цяжы́, -цяжо́ў, *м.* Умоўнае графічнае адлюстраванне чаго-н. (збудавання, агрэгата, дэталі і пад.) на паперы, кальцы (у 1 знач.) і інш. *Ч. пяціпавярховага дома.*

**ЧАРЦЁЖНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па чарчэнні. ‖ *ж.* **чарцёжніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **чарцёжніцкі**, -ая, -ае.

**ЧАРЦЁЖНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да чарчэння; прызначаны для чарчэння. *Чарцёжныя работы. Ч. стол.*

**ЧАРЦІ́ЦЬ**, чарчу́, чэ́рціш, чэ́рціць; чэ́рцім, чэ́рціце, чэ́рцяць; чэ́рчаны; *незак., што.* **1.** Праводзіць лінію, рысу. *Ч. лініі ў сшытку. Ч. круг цыркулем.* **2.** Рабіць чарцёж чаго-н. *Ч. план дома.* ‖ *зак.* **начарці́ць**, -чарчу́, -чэ́рціш, -чэ́рціць; -чэ́рцім, -чэ́рціце, -чэ́рцяць; -чэ́рчаны. ‖ *наз.* **чарчэ́нне**, -я, *н.*

**ЧАРЦЯНЯ́** *і* **ЧАРЦЯНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* **1.** Паводле народнай міфалогіі: дзіцяня чорта; маленькі чорт. **2.** *перан.* Пра гарэзлівае, свавольнае дзіця (разм.). ‖ *прым.* **чарцяня́чы**, -ая, -ае.

**ЧА́РЫ**, -аў. **1.** Чарадзейства, чараўніцтва. *Яна ведала нейкія ч.* **2.** Прывабнасць, чароўнасць, абаяльнасць. *Ім валодалі непазбыўныя ч.*

**ЧАРЭ́НЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Верхняя знешняя частка рускай печы, ляжанка. *Грэцца на чарэні.* **2.** Гарызантальная паверхня ўнутры рускай печы; под. ‖ *прым.* **чарэ́невы**, -ая, -ае.

**ЧАРЭ́ШНЯ**, -і, *мн.* -і, -шань *і* -шняў, *ж.* Пладова-ягаднае дрэва з чырвонымі, жоўтымі ці амаль чорнымі костачкавымі пладамі, а таксама ягады гэтага дрэва. ‖ *прым.* **чарэ́шневы**, -ая, -ае. *Чарэшневая костачка. Чарэшневая галінка.*

**ЧАС**, -у, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Бесперапынная і пастаянная змена мінут, гадзін, дзён і пад. *Ішоў ч., і наступіла лета. Ч. не стаіць на месцы.* **2.** Прамежак пэўнай працягласці ў паслядоўнай змене гадзін, дзён, гадоў і пад., у які што-н. адбываецца. *Скараціць ч. вучобы. Вольны ч. Ч. падрыхтоўкі да спаборніцтваў.* **3.** Нейкі пэўны момант, у які што-н. адбываецца. *Ч. абеду. Ч. адпраўлення цягніка. Вызначыць ч. сходу.* **4.** Пара года, дня і пад. *Вячэрні ч. Летні ч.* **5.** Перыяд, эпоха ў гісторыі або жыцці чалавека, народа, дзяржавы. *Даваенны ч. З незапамятных часоў.* **6.** Зручны момант, спрыяльная пара для чаго-н. *Упусціць ч. уборкі. Самы ч. пайсці ў адпачынак. Ч. сеяць.* **7.** У філасофіі: адна з асноўных аб'ектыўных (разам з прасторай) форм існавання матэрыі. *Па-за часам і прасторай няма руху матэрыі.* **8.** У граматыцы: катэгорыя дзеяслова, якая выражае адносіны дзеяння або стану да моманту гаворкі або да якога-н. іншага моманту. *Цяперашні ч. Прошлы ч. Будучы ч.* ○ **Каменданцкі час** — забарона без асобага дазволу з'яўляцца на вуліцах населенага пункта ў пэўны час пры аб'яўленні ваеннага або асаднага становішча. **Мясцовы час** — час, які ўстанаўліваецца для пэўнага геаграфічнага пояса, раёна, для пэўнай мясцовасці. ◊ **Адзін час** — на працягу нейкага часу; некалі, даўней. **Ад часу да часу; час ад часу** — калі-нікалі, зрэдку. **Без часу** — заўчасна, не пражыўшы адведзены час. **Да часу** — 1) часова; 2) раней тэрміну. **З часам** — у будучым, некалі. **На скорым часе** — неўзабаве, хутка. **На часах** — на апошнім месяцы цяжарнасці (пра жанчыну). **Па часе** — пасля таго, як ужо што-н. здарылася. **Тым часам** — адначасова з гэтым, у той самы момант. **У добры час** — пажаданне поспеху, удачы каму-н. **У свой час** — 1) некалі, калісьці, раней, у мінулым; 2) своечасова, калі ў чым-н. будзе патрэба, неабходнасць. **У час** — своечасова, у патрэбны момант. **Час не чакае** — нельга далей адкладваць, трэба спяшацца з выкананнем чаго-н. **Час прабіў** — прыйшла, настала пара для чаго-н. ‖ *прым.* **ча́савы**, -ая, -ае (да 1, 2, 4 і 8 знач.).

**ЧАСАЛІЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Спосаб лічэння каляндарнага часу.

**ЧАСА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Прылада для часання воўны, ільну і пад.

**ЧАСА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Памяшканне, цэх, у якім чэшуць воўну, лён і пад.

**ЧАСА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца часаннем воўны, ільну і пад. ‖ *ж.* **часа́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **часа́льшчыцкі**, -ая, -ае.

**ЧА́САМ** *і* **ЧАСА́МІ**, *прысл.* **1.** Іншы раз, калі-нікалі. **2.** *у знач. пабочн. сл.* Дарэчы, між іншым. *Ты, часам (часамі), не ў госці ідзеш?*

**ЧАСА́НЫ**[1], -ая, -ае. Распраўлены, прыгладжаны пры дапамозе расчоскі (пра валасы); ачышчаны ад кастрыцы пры дапамозе грэбеня (пра лён, пяньку і пад.). *Ч. лён.*

**ЧАСА́НЫ**[2], -ая, -ае. Апрацаваны сякерай. *Часанае бервяно.*

**ЧАСА́ЦЦА**, чашу́ся, чэ́шашся, чэ́шацца; чэ́шамся, чэ́шацеся, чэ́шуцца; чашы́ся; *незак.* Расчэсваць, часаць валасы; прычэсвацца. ‖ *зак.* **пачаса́цца**, -чашу́ся, -чэ́шашся, -чэ́шацца; -чашы́ся. ‖ *наз.* **часа́нне**, -я, *н.*

**ЧАСА́ЦЬ**[1], чашу́, чэ́шаш, чэ́ша; чэ́шам, чэ́шаце, чэ́шуць; чашы́; часа́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Распраўляць, расчэсваць грэбенем (валасы). *Ч. валасы. Ч. дзіця.* **2.** *што.* Ачышчаць валакно (ільну, канапель), воўну і пад. ад рэштак кастрыцы пры дапамозе спецыяльных металічных шчотак, грэбеня або часальных машын. *Ч. воўну.* **3.** Хутка, энергічна рабіць што-н. (ісці, бегчы, танцаваць і пад.); бойка гаварыць (разм.). *Хлопец бойка чэша ўпрысядкі.* ‖ *зак.* **пачаса́ць**, -чашу́, -чэ́шаш, -чэ́ша; -чэ́шам, -чэ́шаце, -чэ́шуць; -чашы́; -часа́ны (да 3 знач.). ‖ *аднакр.* **часану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; -ну́ты. ‖ *наз.* **часа́нне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.). ‖ *прым.* **часа́льны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.). *Часальная машына.*

**ЧАСА́ЦЬ**[2], чашу́, чэ́шаш, чэ́ша; чэ́шам, чэ́шаце, чэ́шуць; чашы́; часа́ны; *незак., што.* Сякерай апрацоўваць дрэва. *Ч. бярвенне. Ч. розныя фігуркі з дрэва.* ◊ **Хоць кол на галаве чашы** *каму* (разм., неадабр.) — пра ўпартага чалавека, які не паддаецца ўгаворам. **Часаць языком** (разм., неадабр.) — гаварыць абы-што, пляткарыць. ‖ *наз.* **часа́нне**, -я, *н.*

**ЧАСІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -сін, *ж.* **1.** Кароткі адрэзак часу. *Зайдзі да нас на часіну.* **2.** Пара, час, перыяд. *Шчаслівая ч. наваселля.*

**ЧАСНО́К**, -наку́, *м.* Агародніннае расліна сямейства лілейных, а таксама ядомыя цыбуліны гэтай расліны з вострым смакам і рэзкім характэрным пахам. ‖ *прым.* **часно́чны**, -ая, -ае.

**ЧАСО́ВЫ**, -ая, -ае. Які існуе, дзейнічае на працягу пэўнага часу; *проціл.* пастаянны. *Часовае пасведчанне. Часовае месца жыхарства. Часовая работа.* ‖ *наз.* **часо́васць**, -і, *ж.*

**ЧАСО́ПІС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Перыядычнае выданне ў выглядзе кніжкі, у якой змешчаны артыкулы або мастацкія творы розных аўтараў. *Аформіць падпіску на часопісы і газеты.* ‖ *прым.* **часо́пісны**, -ая, -ае. *Ч. варыянт рамана.*

**ЧАСТАВА́ЦЦА**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся; *незак., чым і без дап.* Есці, піць тое, чым частуюць, а таксама частаваць адзін аднаго. *Ч. блінамі. Ч. цукеркамі.* ‖ *зак.* **пачастава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся.

**ЧАСТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; *незак., каго (што) чым.* **1.** Даваць каму-н. есці, піць, выказваючы ўвагу, гасціннасць. *Ч. пірагамі. Ч. малаком.* **2.** *перан.* Рабіць каму-н. што-н. прыемнае або непрыемнае (разм.). *Ч. новым апавяданнем. Ч. кіем.* ‖ *зак.* **пачастава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны. ‖ *наз.* **частава́нне**, -я, *н.*

**ЧАСТАКО́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Агароджа, плот, зроблены з часта ўбітых калкоў, а не са штыкецін. ‖ *прым.* **частако́лавы**, -ая, -ае.

**ЧАСТАКО́ЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, -лін, *ж.* Адзін калок частакола.

**ЧАСТАТА́**, -ы́, *ДМ* -таце́, *мн.* -то́ты, -то́т, *ж.* **1.** *гл.* часты. **2.** Велічыня, якая выражае колькасць паўтарэнняў чаго-н. у адзінку часу (спец.). *Ч. хістанняў маятніка. Ч. электрамагнітных хваль.* ‖ *прым.* **часто́тны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ЧА́СТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Пэўная доля чаго-н. цэлага. *Разрэзаць пірог на дзве часткі. Ч. вучняў займалася ў другую змену.* **2.** Прадмет як састаўны элемент якога-н. цэлага арганізма, механізма. *Запасныя часткі машын. Часткі цела.* **3.** Кампазіцыйны адрэзак, раздзел літаратурнага, музычнага і пад. твора. *Апавесць у дзвюх частках. Ч. сюіты.* **4.** Аддзел

якой-н. установы, асобная галіна кіравання. *Загадчык навучальнай часткі.* ○ **Часткі свету** — асобныя мацерыкі або вялікія ўчасткі іх тэрыторыі разам з бліжэйшымі да іх астравамі (пра Еўропу, Азію, Афрыку, Аўстралію, Амерыку, Антарктыду).

**ЧА́СТКАВЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з частак, долей, долек.

**ЧАСТКО́ВЫ**, -ая, -ае. Няпоўны, які датычыцца толькі часткі чаго-н., распаўсюджаны толькі на частку каго-, чаго-н. *Ч. рамонт. Частковае вызваленне ад падатку.* ‖ *наз.* **частко́васць**, -і, *ж.*

**ЧАСТО́ТНАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Паказчык частаты (у 2 знач.) чаго-н. *Вызначыць ч. ужывання асобных слоў.*

**ЧА́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які складаецца з блізка размешчаных адзін каля аднаго аднародных прадметаў, частак; густы. *Ч. штыкетнік. Ч. дождж.* **2.** Размешчаны на невялікай адлегласці адзін ад аднаго. *Частыя тралейбусныя прыпынкі.* **3.** Які складаецца з хуткіх рухаў, гукаў і пад., што ідуць адзін за адным. *Ч. пульс. Чуліся частыя адрывістыя гукі.* **4.** Які паўтараецца праз кароткія прамежкі часу. *Частыя сустрэчы.* ‖ *наз.* **частата́**, -ы́, *ДМ* -таце́ (да 2 і 3 знач.).

**ЧАСУЧА́**, -ы́, *ж.* Шчыльная шаўковая тканіна палатнянага перапляцення, звычайна жаўтавата-пясочнага колеру. ‖ *прым.* **часучо́вы**, -ая, -ае.

**ЧАСЦІ́К**, -у́, *м.* Рыба, якую ловяць сеткай з дробнымі ячэйкамі ў паўднёвых рыбапрамысловых раёнах. ‖ *прым.* **часціко́вы**, -ая, -ае. *Часціковыя кансервы.*

**ЧАСЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* (разм.). Тое, што і *частка* (у 1—3 знач.); вялікая, значная частка чаго-н. ○ **Часціны мовы** — лексіка-граматычныя разрады слоў, якія характарызуюцца агульнымі лексічнымі і граматычнымі адзнакамі, агульнасцю асноўных сінтаксічных функцый у сказе.

**ЧАСЦІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́ц, *ж.* **1.** У граматыцы: службовае слова, якое не мае самастойнага значэння, а выражае розныя сэнсавыя, мадальныя і эмацыянальныя адценні слоў, словазлучэнняў і сказаў. **2.** Элементарная частка ў складзе якога-н. рэчыва (спец.).

**ЧАСЦІ́ЦЬ**, чашчу́, часці́ш, часці́ць; часці́м, часціце́, часця́ць; *незак.* (разм.). Вельмі хутка, часта (часцей, чым трэба) выконваць якія-н. дзеянні, рухі і пад.

**ЧАСЦЬ**, -і, *мн.* -і, -е́й, *ж.* **1.** Асобная самастойная вайсковая адзінка. *Камандзір танкавай часці. Вайсковая ч.* **2.** Доля, пай, частка, якія належаць каму-н. *Трэцюю ч. зямлі бацька адпісаў малодшаму сыну.* **3.** Галіна якой-н. дзейнасці; спецыяльнасць (разм.). *Пайсці па фінансавай часці. Гэта не па маёй часці.*

**ЧАСЦЯКО́М**, *прысл.* (разм.). Даволі часта. *Ён ч. бывае ў нас.*

**ЧАТЫРНАЦЦАЦІГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Узростам у чатырнаццаць гадоў. *Ч. хлопец.* **2.** Працягласцю ў чатырнаццаць гадоў. *Ч. перыяд.*

**ЧАТЫРНА́ЦЦАЦЬ**, -і, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 14. ‖ *парадк.* **чатырна́ццаты**, -ая, -ае.

**ЧАТЫРОХ...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які змяшчае чатыры якія-н. адзінкі, які складаецца з чатырох адзінак, напр.: *чатырохактовы, чатырохгалосы, чатырохгранны, чатырохмесны, чатырохструнны;* 2) колькасцю, мерай, коштам у чатыры якія-н. адзінкі, напр.: *чатырохдзённы, чатырохбальны, чатырохрублёвы*

**ЧАТЫРОХАКТО́ВЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з чатырох актаў. *Чатырохактовая п'еса.*

**ЧАТЫРОХБА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Сілаю ў чатыры балы; які ацэньваецца ў чатыры балы. *Ч. шторм.*

**ЧАТЫРОХВУГО́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Геаметрычная фігура, абмежаваная замкнутай ломанай лініяй, звёны якой утвараюць чатыры вуглы.

**ЧАТЫРОХВУГО́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. У форме чатырохвугольніка, які мае чатыры вуглы. *Чатырохвугольная пляцоўка.*

**ЧАТЫРОХГАДЗІ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які працягваецца чатыры гадзіны. *Ч. перапынак.* **2.** Назначаны на чатыры гадзіны. *Ч. аўтобус.*

**ЧАТЫРОХГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* чатырохгоддзе. **2.** Які праіснаваў, пражыў чатыры гады. *Ч. сын.*

**ЧАТЫРОХГО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Прамежак часу ў чатыры гады. **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, якая адбылася чатыры гады таму назад. *Ч. завода.* ‖ *прым.* **чатырохгадо́вы**, -ая, -ае.

**ЧАТЫРОХГРА́ННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Геаметрычнае цела, абмежаванае чатырма гранямі, а таксама прадмет у форме такога геаметрычнага цела.

**ЧАТЫРОХГРА́ННЫ**, -ая, -ае. Які мае чатыры грані. *Ч. штык.*

**ЧАТЫРОХДЗЁННЫ**, -ая, -ае. Які працягваецца чатыры дні, разлічаны на чатыры дні. *Ч. паход. Ч. запас прадуктаў.*

**ЧАТЫРОХКАНТО́ВЫ**, -ая, -ае. З чатырма кантамі. *Чатырохкантовая бэлька.*

**ЧАТЫРОХКЛА́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае чатыры класы, складаецца з чатырох класаў. *Чатырохкласная школа.* **2.** У аб'ёме чатырох класаў. *Чатырохкласная адукацыя.*

**ЧАТЫРОХКО́ННЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для запрэжкі чатырох коней, а таксама запрэжаны чатырма коньмі. *Чатырохконная брычка.*

**ЧАТЫРОХКРА́ТНЫ**, -ая, -ае. Які паўтараецца чатыры разы, павялічаны ў чатыры разы. *Ч. напамін. У чатырохкратным памеры. Ч. чэмпіён.*

**ЧАТЫРОХКУ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Тое, што і *чатырохвугольнік.*

**ЧАТЫРОХКУ́ТНЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *чатырохвугольны.*

**ЧАТЫРОХМЕ́СНЫ**, -ая, -ае. З месцамі для чатырох. *Чатырохмеснае купэ.*

**ЧАТЫРОХМЕ́СЯЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які прадаўжаецца чатыры месяцы; разлічаны на чатыры месяцы. *Чатырохмесячная камандзіроўка. Чатырохмесячныя запасы прадуктаў.* **2.** Узростам у чатыры месяцы. *Ч. хлопчык.*

**ЧАТЫРОХПАВЯРХО́ВЫ**, -ая, -ае. Вышынёй у чатыры паверхі. *Ч. дом.*

**ЧАТЫРОХПАКАЁВЫ**, -ая, -ае. З чатырма пакоямі. *Чатырохпакаёвая кватэра.*

**ЧАТЫРОХПО́ЛЛЕ**, -я, *н.* Сістэма севазвароту з падзелам ворнай зямлі на чатыры палі, якія засяваюцца рознымі культурамі ў пэўнай паслядоўнасці.

**ЧАТЫРОХПО́ЛЬНЫ**. -ая, -ае. Заснаваны на чатырохполлі. *Ч. севазварот.*

**ЧАТЫРОХРАДКО́ВЫ**, -ая, -ае. Які мае чатыры радкі, складаецца з чатырох радкоў. *Ч. верш. Чатырохрадковая страфа.*

**ЧАТЫРОХРАДКО́ЎЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Верш ці страфа з чатырох радкоў.

**ЧАТЫРОХРАЗО́ВЫ**, -ая, -ае. Які адбываўся, паўтараўся чатыры разы. *Чатырохразовае кармленне. Ч. чэмпіён. Чатырохразовая доза лякарства.*

**ЧАТЫРОХСКЛАДО́ВЫ**, -ая, -ае. Які ў сваёй структуры мае чатыры склады. *Чатырохскладовае слова.*

**ЧАТЫРОХСОТГО́ДДЗЕ**, -я, *н.* **1.** Прамежак часу ў 400 гадоў. **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, якая адбылася 400 гадоў таму назад. *Ч. горада.* ‖ *прым.* **чатырохсотгадо́вы**, -ая, -ае.

**ЧАТЫРОХСУ́ТАЧНЫ**, -ая, -ае. Які працягваецца чацвёра сутак, прызначаны на чацвёра сутак. *Ч. паёк.*

**ЧАТЫРОХТО́МНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Які складаецца з чатырох тамоў. ‖ *прым.* **чатырохто́мны**, -ая, -ае. *Чатырохтомнае выданне.*

**ЧАТЫРОХТЫ́СЯЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *Ліч. парадк.* да чатыры тысячы. **2.** Які складаецца з чатырох тысяч адзінак. *Ч. атрад.* **3.** Цаной у чатыры тысячы.

**ЧАТЫ́РЫ**, чатыро́х, чатыро́м, чатырма́, (аб) чатыро́х, *ліч. кольк.* Лік, лічба і колькасць 4. ‖ *парадк.* **чацвёрты**, -ая, -ае. *Ч. нумар. Чацвёртая старонка.*

**ЧАТЫ́РЫСТА**, чатырохсо́т, чатыромста́м, чатырмаста́мі, (аб) чатырохста́х, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 400. ‖ *парадк.* **чатырохсо́ты**, -ая, -ае.

**ЧА́ЎКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Утвараць пры жаванні, ядзе характэрныя гукі губамі і языком; есці, прыцмокваючы. **2.** Утвараць гукі, характэрныя для хадзьбы па гразі; чвякаць. *Гразь чаўкала пад ботамі.* ‖ *наз.* **ча́ўканне**, -я, *н.*

**ЧАЎНО́К**, -нака́, *мн.* -накі́, -нако́ў, *м.* **1.** Дэталь у ткацкім станку, якая мае форму чоўна, з пражай для пракладвання ўточнай ніткі. **2.** Дэталь у швейнай машыне з двухніткавым швом, якая падае ніжнюю нітку. ‖ *прым.* **чаўно́чны**, -ая, -ае.

**ЧАЎПЦІ́**, -пу́, -пе́ш, -пе́; -пём, -пяце́, -пу́ць; -пі́; *незак., што* (разм., зневаж.).

Гаварыць недарэчнасці, глупства, бязглуздзіцу; паўтараць; плесці адно і тое ж. *Што ты чаўпеш?*

**ЧАЎПЦІ́СЯ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -пе́цца; *незак.* (разм.). Не выходзіць з галавы; вярзціся. *Не спаў, усю ноч нешта чаўплося.*

**ЧАЎРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* (разм.). Чэзнуць; марнець, гібець; станавіцца хваравітым, нядужым.

**ЧАХАРДА́**, -ы́, *ДМ* -дзе́, *ж.* **1.** Гульня, у якой ігракі па чарзе скачуць цераз спіны партнёраў, якія стаяць сагнуўшыся ці на карачках. **2.** *перан.* Блытаніна, якая ўзнікае з-за пастаянных змен, перамяшчэнняў (разм.). *Міністэрская ч.*

**ЧАХЛІ́ЦЬ**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; -лёны; *незак., што* (спец.). Закрываць чахлом (у 1 знач.), чахламі. *Ч. гарматы.* ‖ *зак.* **зачахлі́ць**, -лю́, -лі́ш, -лі́ць; -лі́м, -ліце́, -ля́ць; -лёны.

**ЧА́ХЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які дрэнна, слаба расце (пра расліны); вялы, чэзлы. **2.** Хваравіты, кволы. *Чахлае дзіця.* ‖ *наз.* **ча́хласць**, -і, *ж.*

**ЧА́ХНУЦЬ**[1], -ну, -неш, -не; чах, -хла; -ні; *незак.* **1.** Дрэнна, слаба расці; сохнуць, вянуць. *Ярына чахла без дажджу.* **2.** Станавіцца слабым, кволым, нядужым. *Дзіця чахне на вачах.* ‖ *зак.* **зача́хнуць**, -ну, -неш, -не; зача́х, -хла; -ні.

**ЧА́ХНУЦЬ**[2], -ну, -неш, -не; ча́хнуў, -нула; -ні; *зак.* (разм.). Гучна стрэліць, ударыць і пад.

**ЧА́ХНУЦЬ**[3], 1 і 2 ас. не ўжыв., -не; чах, -хла; *незак.* Пастулова астываць. ‖ *зак.* **ача́хнуць**, -не; ача́х, -хла. *Печ ачахла.*

**ЧАХО́Л**, -хла́, *мн.* -хлы́, -хло́ў, *м.* **1.** Пакрыўка з тканіны або іншага матэрыялу, зробленая па форме якога-н. прадмета для захавання яго ад псавання, забруджвання і пад. *Ч. на канапу.* **2.** Падкладка з больш шчыльнай, непразрыстай тканіны пад лёгкай, празрыстай сукенкай. ‖ *памянш.* **чахо́льчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **чахо́льны**, -ая, -ае.

**ЧАЦВЕ́Р**, -вяргá, *мн.* -вяргі́, -вяргóў, *м.* Чацвёрты (пасля нядзелі) дзень тыдня.

**ЧАЦВЁРА**, -вяры́х, -вяры́м, -вяры́мі, *ліч. зб.* Чатыры. Ужыв.: а) з назоўнікамі мужчынскага і агульнага роду, якія абазначаюць асоб. *Ч. сяброў. Ч. сірот;* б) без назоўнікаў, калі абазначаюць асоб мужчынскага і жаночага полу ў адзінстве. *Ч. ўжо адправіліся ў дарогу. Ч. прапанавалі сваю дапамогу;* в) з назоўнікамі, якія абазначаюць маладых істот. *Ч. ягнят. Ч. лісянят;* г) з назоўнікамі, якія ўжываюцца толькі ў мн. л. або якія абазначаюць парныя прадметы. *Ч. сутак. Ч. саней. Ч. нажніц. Ч. шкарпэтак;* д) з асабовымі займеннікамі ў мн. л. *Іх было ч.*

**ЧАЦВЁРАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Вучань, які вучыцца на чацвёркі. ‖ *ж.* **чацвёрачніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЧАЦВЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Лічба 4. *Напісаць чацвёрку.* **2.** Школьная адзнака (разм.). *Атрымаць чацвёрку па хіміі.* **3.** Запрэжка ў чатыры кані. *Пад'ехаць на чацвёрцы.* **4.** Колькасць каго-, чаго-н. у чатыры адзінкі; чатыры аднародныя прадметы. *Ч. самалётаў.* **5.** Назва чаго-н., абазначанага лічбай 4 (трамвая, тралейбуса і пад.; разм.). *Ч. ходзіць па кароткім маршруце.*

**ЧАЦВЁРТАКЛА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань чацвёртага класа. ‖ *ж.* **чацвёртакла́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЧАЦВЁРТЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* чатыры. **2.** Які атрымліваецца пры дзяленні на чатыры. *Чацвёртая частка.* **3.** *у знач. наз.* **чацвёртая**, -ай, *ж.* Чацвёртая частка чаго-н.; чвэрць. *Адна чацвёртая.*

**ЧАЦВЯРНЫ́**, -áя, -óе (разм.). **1.** Які складаецца з чатырох аднародных або падобных частак. **2.** У чатыры разы большы, павялічаны ў чатыры разы. *У чацвярным памеры.*

**ЧАЦВЯРНЯ́**, -і́, *ж.* (разм.). Чацвёра дзяцей, народжаных адной маці адначасова; чацвёра блізнят. *Нарадзілася ч.*

**ЧАЦВЯРТА́К**, -вертака́, *мн.* -вертакі́, -вертако́ў, *м.* (уст.). **1.** Сярэбраная манета вартасцю ў чвэрць рубля, дваццаць пяць капеек. **2.** Чвэрць надзела (пра зямлю). *На жвірыстым чацвертаку нічога не расло.* ‖ *прым.* **чацвертако́вы**, -ая, -ае.

**ЧАЦВЯРЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* (разм.). **1.** Чацвёртая частка чаго-н. *Ч. яблыка.* **2.** Чацвёртая частка бервяна, распілаванага ўдоўж накрыж (спец.). **3.** Старажытная пасудзіна ёмістасцю ў адну чацвёртую частку вядра. **4.** Тое, што і *чацвяртак* (у 2 знач.). ‖ *памянш.* **чацвярці́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ЧАЦВЯРЦІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** *гл.* чацвярціна. **2.** Бутэлька гарэлкі ці віна ёмістасцю ў адну чацвёртую частку літра (разм.).

**ЧАЦВЯРЦІ́ЧНЫ**, -ая, -ае (спец.). Звязаны з другім перыядам кайназойскай эры. *Чацвярцічныя выкапні.*

**ЧАЦВЯРЫ́К**, -верыка́, *мн.* -верыкі́, -верыко́ў, *м.* **1.** Старая мера аб'ёму сыпкіх цел; адна восьмая частка чвэрці. *Ч. пшаніцы.* **2.** Чатыры кані ў адной запрэжцы. *Ехаць на чацверыку.* ‖ *прым.* **чацверыко́вы**, -ая, -ае.

**ЧАЧО́ТКА**[1], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Невялікая пеўчая птушка сямейства ўюрковых.

**ЧАЧО́ТКА**[2], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Хуткі рытмічны танец з дробным прыстукваннем абцасамі аб падлогу. ‖ *прым.* **чачо́тачны**, -ая, -ае.

**ЧАЧО́ТКА**[3], -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Від бярозы з прыгожай узорнай драўнінай на разрэзе; карэльская бяроза. ‖ *прым.* **чачо́ткавы**, -ая, -ае. *Чачоткавая шкатулка.*

**ЧАЧЭ́НЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Чачэнскай Рэспублікі, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **чачэ́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **чачэ́нскі**, -ая, -ае.

**ЧА́ША**, -ы, *мн.* -ы, чаш, *ж.* **1.** Старадаўняя круглая пасудзіна для піцця; кубак для віна (уст., паэт.). *Сярэбраная ч.* **2.** Якая-н. пасудзіна, ёмішча круглай формы. *У бронзавай чашы гарэў Вечны агонь.* **3.** *перан.* Вялікі натуральны або штучны рэзервуар. *Сіняя ч. возера.* ◊ **Дом — поўная чаша** — багаты, заможны. **Перапоўніць чашу цярпення** (высок.) — пазбавіць сіл, магчымасці цярпець, выносіць што-н.

**ЧАШАЛІ́СЦІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Адзін з зялёных лісцікаў, якія ўтвараюць чашачку кветкі.

**ЧА́ШАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (спец.). Вонкавая частка лісцікаў калякветніка, якая ахоўвае бутон і вяночак кветкі.

**ЧАЯ...** (*гл.* **чае...**). Першая састаўная частка складаных слоў, ужыв. замест «чае...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *чаявод, чаяводства, чаяводчы, чаяпіцце.*

**ЧАЯВА́ЦЬ**, чаю́ю, чаю́еш, чаю́е; чаю́й; *незак.* (разм.). Праводзіць час за піццём чаю; піць чай. ‖ *наз.* **чаява́нне**, -я, *н.*

**ЧАЯВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па чаяводстве.

**ЧАЯВО́ДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне чайнага куста як галіна раслінаводства. ‖ *прым.* **чаяво́дчы**, -ая, -ае.

**ЧАЯВЫ́Я**, -ы́х. Грошы, якія даюць за дробныя паслугі, абслугоўванне (швейцару і інш.).

**ЧАЯПІ́ЦЦЕ**, -я, *н.* Піццё чаю (звычайна працяглае). *Ч. працягвалася цэлую гадзіну.*

**ЧВА́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Тое, што і *чаўкаць* (у 2 знач.). ‖ *наз.* **чва́канне**, -я, *н.*

**ЧВАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак., каго.* У старажытнасці: пакараць (караць) смерцю адсячэннем рук, ног і галавы. ‖ *наз.* **чвартава́нне**, -я, *н.*

**ЧВЭ́РТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Тое, што і *чвэрць* (у 1—6 знач.). ‖ *прым.* **чвэ́рткавы**, -ая, -ае.

**ЧВЭРЦЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Чацвёртая частка цэлага. *Ч. года.* **2.** Адзін з чатырох перыядаў, на якія ўмоўна падзяляецца навучальны год у школе. *Усе вучні паспяхова закончылі першую ч.* **3.** Старая мера сыпкіх рэчываў, роўная 8 чацверыкам (каля 210 л). *Дзве чвэрці аўса.* **4.** Старая мера аб'ёму вадкасці, роўная чацвёртай частцы вядра (каля 3 л), якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы, а таксама пасудзіна ёмістасцю ў тры літры. **5.** Старая мера даўжыні, роўная чацвёртай частцы аршына, што існавала да ўвядзення метрычнай сістэмы. **6.** Старая мера зямельнай плошчы, роўная 0,5 дзесяціны. **7.** Нота працягласцю ў адну чацвёртую частку цэлай ноты (спец.). **8.** Адна з чатырох фаз Месяца; вузкі серп Месяца ў першай ці апошняй фазе (спец.). **9.** Паз прамавугольнага сячэння па канцы дошкі для

змацавання яе з другой дошкай (спец.). ◊ **Тры чвэрці да смерці** (разм.) — пра слабага, хворага чалавека, якому мала засталося жыць. ‖ *прым.* **чвэ́рцевы**, -ая, -ае (да 2 і 7 знач.).

**ЧВЭРЦЬФІНА́Л**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* У спартыўных спаборніцтвах: гульня на першынство, якая папярэднічае паўфіналу. ‖ *прым.* **чвэрцьфіна́льны**, -ая, -ае.

**ЧВЭРЦЬФІНАЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* У спартыўных спаборніцтвах: непасрэдны ўдзельнік чвэрцьфіналу. ‖ *ж.* **чвэрцьфіналі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ЧВЯ́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Падаць, стукацца з глухім, мяккім гукам. ‖ *аднакр.* **чвя́кнуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся. ‖ *наз.* **чвя́канне**, -я, *н.*

**ЧВЯ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Утвараць гукі, характэрныя для хадзьбы па гразі. **2.** Ісці па чым-н. мокрым, гразкім, утвараючы характэрныя гукі. **3.** Тое, што і *чаўкаць* (у 1 знач.). **4.** Па́даць, утвараючы глухі, мяккі гук. ‖ *аднакр.* **чвя́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1, 3 і 4 знач.). ‖ *наз.* **чвя́канне**, -я, *н.*

**ЧЛЕН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Асоба (а таксама краіна, арганізацыя), якая ўваходзіць у склад якога-н. саюза, аб'яднання, групы, таварыства. *Правадзейны ч. Нацыянальнай акадэміі навук. Ч. Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.* **2.** Адна з састаўных частак якога-н. цэлага. *Ч. прапорцыі* (спец.). *Ч. сказа.* **3.** Частка цела чалавека або жывёлы (часцей пра канечнасці). **4.** Тое, што і *артыкль* (спец.). *Азначальны ч.* (напр., у нямецкай мове — der, die, das). ‖ *прым.* **чле́нскі**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **чле́нны**, -ая, -ае (да 4 знач.).

**ЧЛЕНАРАЗДЗЕ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Выразны, зразумелы, ясны (пра гукі мовы, пра мову). *Гаварыць членараздзельна* (прысл.). ‖ *наз.* **членараздзе́льнасць**, -і, *ж.*

**ЧЛЕНАШКО́ДНІЦТВА**, -а, *н.* **1.** Наўмыснае пашкоджанне якога-н. члена ці органа свайго цела. **2.** Прычыненне зняважання каму-н. ‖ *прым.* **членашко́дніцкі**, -ая, -ае.

**ЧЛЕНІСТАНО́ГІЯ**, -іх, *адз.* -ае, -ага, *н.* Вышэйшы тып беспазваночных жывёл, цела і канечнасці якіх падзелены на сегменты (членікі).

**ЧЛЕ́НІСТЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з асобных частак, членікаў. *Членістыя жывёлы, расліны.* ‖ *наз.* **чле́ністасць**, -і, *ж.*

**ЧЛЕН-КАРЭСПАНДЭ́НТ**, чле́на-карэспандэ́нта, *мн.* чле́ны-карэспандэ́нты, чле́наў-карэспандэ́нтаў, *м.* Акадэмічнае вучонае званне, ніжэйшае за акадэміка (правадзейнага члена), якое носяць прызнаныя вучоныя або дзеячы мастацтваў, выбраныя агульным сходам якой-н. акадэміі ў яе склад без права рашаючага голасу (у адрозненне ад правадзейных членаў акадэміі). ‖ *прым.* **член-карэспандэ́нцкі**, -ая, -ае.

**ЧЛЕ́НСТВА**, -а, *н.* Удзел у арганізацыі, таварыстве, саюзе і пад. на правах члена (у 1 знач.).

**ЧЛЯНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., чле́ніцца; *незак.* Дзяліцца на асобныя часткі, члены; расчляняцца. *Слова члéніцца на корань і суфіксы.* ‖ *зак.* **расчляні́цца**, -чле́ніцца. ‖ *наз.* **чляне́нне**, -я, *н.*

**ЧЛЯНІ́ЦЬ**, чляню́, чле́ніш, чле́ніць; чляне́ны; *незак., што.* Дзяліць на асобныя часткі, члены; расчляняць. ‖ *зак.* **расчляні́ць**, расчляню́, расчле́ніш, расчле́ніць; расчляне́ны. ‖ *наз.* **чляне́нне**, -я, *н.*

**ЧМЕЛЬ**, чмяля́, *мн.* чмялі́, чмялёў, *м.* Насякомае сямейства пчаліных з тоўстым махнатым цельцам. ‖ *прым.* **чмялі́ны**, -ая, -ае.

**ЧМУРЫ́ЦЬ**, чмуру́, чму́рыш, чму́рыць; *незак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Адурманьваць, тлуміць. *Не чмуры мне галавы.* **2.** *каго.* Ашукваць, абдурваць, збіваць з толку каго-н. ‖ *зак.* **ачмуры́ць**, -уру́, -у́рыш, -у́рыць; -у́раны.

**ЧМУРЭ́ЦЬ**, -э́ю, -э́еш, -э́е; *незак.* (разм.). Станавіцца дурным; дурнець.

**ЧМУТ**, -а *і* -у, *М* чму́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). **1.** -а. Ашуканец, несумленны ў адносінах да людзей чалавек. **2.** -у. Дурман, ачмурэнне. *Змятаць з дарогі старых законаў ч.*

**ЧМУЦІ́ЦЬ**, чмучу́, чму́ціш, чму́ціць; *незак.* (разм.). Баламуціць, дурыць галаву; вярзці бязглуздзіцу. ‖ *зак.* **ачмуці́ць**, ачмучу́, ачму́ціш, ачму́ціць; ачму́чаны.

**ЧМЫХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** З шумам выпускаць паветра праз ноздры. **2.** Смеючыся, плачучы, утвараць гук носам ці губамі. **3.** Перарывіста, з шумам выпускаць паветра, пару, адпрацаваны газ. **4.** *перан.* Выражаць незадаволенасць чым-н. (разм.). ‖ *аднакр.* **чмы́хнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **чмы́ханне**, -я, *н.*

**ЧМЯ́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Падаць з глухім, мяккім гукам. ‖ *аднакр.* **чмя́кнуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся. ‖ *наз.* **чмя́канне**, -я, *н.*

**ЧМЯ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *чвякаць.* ‖ *аднакр.* **чмя́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні; ‖ *наз.* **чмя́канне**, -я, *н.*

**ЧО́ВЕН**, чо́ўна, *мн.* чаўны́, чаўно́ў, *м.* Лёгкая лодка, выдзеўбаная са ствала дрэва; лодка наогул. ‖ *прым.* **чо́ўнавы**, -ая, -ае.

**ЧО́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* Дакранацца сваёй чаркай, бакалам і пад. да шклянкі, бакала каго-н. другога з добрымі пажаданнямі чаго-н. ‖ *зак.* **чо́кнуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся. ‖ *наз.* **чо́канне**, -я, *н.*

**ЧО́КАЦЬ**[1], -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Утвараць рэзкія, адрывістыя гукі пры ўдары аб што-н. шкляное, металічнае або пры хадзьбе па бруку і пад. *Ч. абцасікамі па асфальце. Дзяцел чокаў дзюбай па дрэве.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра некаторых птушак і жывёл: абзывацца гукамі, падобнымі на «чок-чок». ‖ *наз.* **чо́канне**, -я, *н.*

**ЧО́КАЦЬ**[2], -аю, -аеш, -ае; *незак.* (спец.). Вымаўляць гук «ч» на месцы гука «ц». ‖ *наз.* **чо́канне**, -я, *н.*

**ЧО́КНУТЫ**, -ая, -ае (разм.). Прыдуркаваты; псіхічна ненармальны.

**ЧОП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Тое, што і *чап.* **2.** Затычка, якой затыкаюць адтуліну ў бочцы ці якой-н. іншай пасудзіне (разм.).

**ЧОРНА...** (а таксама **чарна...**). Першая састаўная частка складаных слоў са знач. чорны (у 1 знач), напр.: *чорнагаловы, чорнабароды.*

**ЧОРНАБАРО́ДЫ**, -ая, -ае. З чорнай барадой. *Ч. мужчына.*

**ЧОРНАГАЛО́ВІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Шматгадовая травяністая расліна сямейства губакветных. **2.** Пра каго-н. з цёмнымі, чорнымі валасамі (разм.). **3.** Разнавіднасць баравіка з цёмнай, чорнай шапачкай (разм.).

**ЧОРНАГАЛО́ВЫ**, -ая, -ае. З чорнымі валасамі (пра чалавека), з чорнай галавой (пра жывёл, птушак).

**ЧОРНАГАЛО́Ў**, -ло́ву, *м.* Тое, што і *чорнагаловік* (у 1 знач.).

**ЧОРНАРАБО́ЧЫ**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Рабочы, які выконвае фізічную работу, што не патрабуе кваліфікацыі. ‖ *ж.* **чорнарабо́чая**, -ай, *мн.* -ыя, -ых.

**ЧО́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае колер сажы, вугалю; *проціл.* белы. *Чорная фарба. Чорная барада. Ч. дым.* **2.** Цёмны, больш цёмны ў параўнанні з чым-н. больш светлым. *Ч. хлеб. Ч. ад загару.* **3.** Брудны, запэцканы. *Чорныя рукі ад гразі.* **4.** Некваліфікаваны, які не патрабуе высокага майстэрства, часта фізічна цяжкі і брудны (пра работу). *Чорная работа.* **5.** Прызначаны для якіх-н. службовых ці бытавых мэт; не парадны, не галоўны. *Ч. ход. Чорная лесвіца.* **6.** Не апрацаваны, чарнавы. *Ч. варыянт рукапісу.* **7.** *перан.* Нізкі, каварны, подлы. *Чорная зайздрасць. Чорныя справы.* **8.** *перан.* Дрэнны, адмоўны. *Чорныя старонкі біяграфіі. Ч. бок жыцця.* **9.** *перан.* Цяжкі, змрочны, беспрасветны. *Чорныя думкі. Чорная доля.* **10.** *перан.* Крайне рэакцыйны. *Чорныя сілы.* **11.** У Рускай дзяржаве 14—17 стст.: цяглавы, падатковы; дзяржаўны, не прыватнаўласніцкі (гіст.). *Чорныя землі.* **12.** Паводле міфалагічных уяўленняў: вядзьмарскі, чарадзейскі, звязаны з нячыстай сілай. **13.** Як састаўная частка некаторых заалагічных і батанічных назваў. *Чорныя парэчкі. Чорная рабіна. Ч. дзяцел.* ○ **Чорнае золата** — 1) нафта; 2) каменны вугаль. **Чорная біржа (чорны рынак)** — неафіцыйная біржа (рынак). **Чорная ікра** — ікра асятровых рыб. **Чорная кава** — моцная кава без малака і вяршкоў. **Чорны лес** — лісцёвы лес, чарналессе. **Чорны шар** — выбарчы шар, які азначае «супраць абрання» каго-н. **Чорныя металы** — назва жалеза і яго сплаваў (сталі, чыгуну і г.д.). ◊ **На чорную гадзіну** (разм.) — на цяжкі час (пакінуць што-н.). **Ні чорнага ні белага** (разм.) — не абазвацца, не ска-

заць ні слова каму-н. **Трымаць у чорным целе** — сурова, строга абыходзіцца з кім-н. **У чорным святле** — змрочным, непрыглядным, горш, чым на самай справе (бачыць, падаваць, паказваць і пад. што-н.). **Чорная косць (костка)** (уст.) — пра людзей простага, недваранскага паходжання. **Чорны дзень** (разм.) — перыяд нястачы, беднасці ў жыцці; цяжкая часіна. **Чорным па белым** (разм.) — дакладна, выразна, ясна (напісана). **Як чорны вол** (рабіць, працаваць; разм.) — рабіць не пакладаючы рук. ‖ *наз.* **чарната́**, -ы́, *ДМ* -наце́, *ж. і* **чарно́та**, -ы, *ДМ* -но́це, *ж.* (да 1—3 знач.).

**ЧОРТ**, -а, *М* -рце, *мн.* чэ́рці *і (з ліч. 2, 3, 4)* чарты́ *і* чо́рты, чарце́й, *м.* **1.** Па рэлігійных уяўленнях: злы дух як увасабленне адмоўнага пачатку ў чалавеку; мае выгляд істоты, пакрытай чорнай шэрсцю, з рагамі, капытамі і хвастом; д'ябал. **2.** Ужыв. як лаянкавае слова (разм.). *Куды лезеш, ч?* ◊ **Адзін чорт** (разм.) — усё адно, адно ліха. **Баяцца як чорт крыжа (ладану)** (разм.) — вельмі моцна баяцца каго-, чаго-н. **Да чорта** (разм.) — пра вялікую колькасць, вельмі многа. **Куды яго чорт панёс, куды яго чэрці ўхапілі** (разм., неадабр.) — куды ён дзеўся. **К чорту на рогі** (разм.) — вельмі далёка, у глухія мясціны (ехаць, адпраўляцца і пад.). **К чорту ў зубы** (разм., неадабр.) — у небяспечнае месца, на рызыкоўную справу (ісці). **На чорта** (разм., груб.) — навошта, дзеля чаго. **Ні к чорту (не варты)** (разм., незадав.) — ні на што не прыгодны. **(Сам) чорт галаву (нагу) зломіць** (разм.) — аб вялікім беспарадку дзе-н. **Сам чорт не брат** *каму* (разм.) — пра таго, хто нічога не баіцца, ні ад каго не залежыць, каму ўсё лёгка, даступна. **Чорта лысага** (разм.) — нічога падобнага; наўрад. **Чортам падшыты** (разм.) — непаседлівы, вяртлявы. **Чорт ведае што!** (разм.) — нешта неймавернае, што цяжка ўявіць; усё, што хочаш. **Чорт з ім (з табой, з ёй, з вамі, з імі)** (разм.) — хай, няхай будзе так. **Чорт лазаты** (разм., неадабр.) — пра таго, хто з'яўляецца ўвасабленнем зла, несправядлівасці. **Чорт не бярэ (не возьме)** (разм.) — нічога не здараецца (не здарыцца), не шкодзіць (не пашкодзіць). **Чорт падаткнуў** (разм.) — аб чым-н., чаго не трэба было рабіць. **Чорт пацягнуў** *каго* **за язык** (разм.) — як шкадаванне з прычыны сказанага не дарэчы, не па сутнасці. **Чорт прынёс (паднёс, прыгнаў)** *каго* (разм., неадабр.) — пра таго, хто прыйшоў, з'явіўся не ў пару, недарэчы. **Чорту лысаму** (разм.) — невядома каму (аддаць, пакінуць і пад.). **Чорт яго бяры** (разм.) — добра, няхай будзе так; згода. **Чэрці носяць** *дзе, каго* (разм., неадабр.) — аб тым, хто ходзіць невядома дзе. **Што за чорт!** (разм.) — як выражэнне здзіўлення, незадаволенасці. **Якога чорта!** (разм., груб.) — выражэнне негатыўных адносін да каго-н., зласлівасці, незадавальнення. **Як чорт пад крыжам** (разм.) — вельмі моцна (дрыжаць, калаціцца). ‖ *памянш.* **чо́ртік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **чарто́ўскі**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **чо́ртаў**, -тава (да 1 знач.). *Чартоўскае насланнё. Чортава стварэнне* (лаянка).

**ЧО́РТАЎ**, -ава. **1.** *гл.* чорт. **2.** Вельмі дрэнны, непрыемны (разм.). *Ч. мароз. Чортава работа.* **3.** У спалучэнні са словамі, якія абазначаюць вялікую колькасць, ужыв. для іх узмацнення (разм.). *Чортава процьма.* ◊ **Чортава вока** — акно ў балоце. **Чортаў тузін** — пра лічбу 13.

**ЧОС**, -у, *м.* У выразе: **даць (задаць) чосу** (разм.) — прабраць каго-н. за што-н.

**ЧОЎНАПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Падобны на човен; які мае форму чоўна.

**ЧУБ**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Пасма валасоў, якая спадае на лоб або ўзнімаецца над ілбом (звычайна ў мужчын). **2.** Пасма доўгіх валасоў, пакінутая на цемені брытай галавы; асяледзец (даўней у запарожцаў і ўкраінскіх казакоў). **3.** Прыўзнятае пер'е на галаве некаторых птушак. *Курыца з чубам.* ◊ **Брацца за чубы** (разм., неадабр.) — біцца. ‖ *памянш.* **чубо́к**, -бка́, *мн.* -бкі́, -бко́ў, *м.*

**ЧУБА́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Птушка з чубам на галаве (звычайна пра курыцу).

**ЧУБА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** З чубам. *Чубатая курыца.* **2.** Як састаўная частка некаторых батанічных і заалагічных назваў. *Ч. шалфей. Ч. рабчык.* ‖ *наз.* **чуба́тасць**, -і, *ж.*

**ЧУ́БІЦЦА**, чу́блюся, чу́бішся, чу́біцца; *незак.* (разм.). Біцца; сварыцца.

**ЧУ́БІЦЬ**, чу́блю, чу́біш, чу́біць; *незак.* (разм.). Тузаць за валасы; біць, лупцаваць. *Хто каго любіць, той таго і чубіць* (прыказка).

**ЧУВА́ЦЬ**, *у форме інф.* і *ў знач. вык.* **1.** Можна чуць, чуецца. *Ч., як дождж барабаніць у шыбы.* **2.** Ёсць звесткі пра каго-, што-н. (разм.). *Што ч. на свеце? Бацька не вярнуўся з вайны, і нічога не чуваць пра яго.* **3.** Успрымацца органамі пачуццяў. *Ч. пах дыму.*

**ЧУВАШЫ́**, -о́ў, *адз.* чува́ш, -а́, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Чувашскай Рэспублікі, што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **чува́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак. ‖ *прым.* **чува́шскі**, -ая, -ае.

**ЧУВЯ́КІ**, -аў, *адз.* -вя́к, -вяка́, *м.* Мяккі абутак без абцасаў (пераважна ў народаў Каўказа). ‖ *прым.* **чувя́чны**, -ая, -ае.

**ЧУДЗЬ**, -і, *ж., зб.* (гіст.). У Старажытнай Русі: агульная назва некаторых заходняфінскіх плямёнаў. ‖ *прым.* **чудскі́**, -а́я, -о́е.

**ЧУЖАЗЕ́МЕЦ**, -мца, *мн.* -мцы, -мцаў, *м.* Чалавек з чужой краіны; іншаземец. ‖ *ж.* **чужазе́мка**, -і, *ДМ* -мцы, *мн.* -і, -мак.

**ЧУЖАЗЕ́МНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *замежны* (у 1 знач.), іншаземны. *Чужаземныя захопнікі.*

**ЧУЖАЗЕ́МШЧЫНА**, -ы, *ж.* **1.** Чужая зямля, краіна; чужына. **2.** Усё чужое, чужаземнае (культура, звычаі і пад.; неадабр.). *Захапляцца чужаземшчынай.*

**ЧУЖА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** Чужы, прышлы чалавек, чужынец. **2.** Чалавек, які па духу, поглядах і пад. чужы ў якім-н. асяроддзі. *Ён ч. сярод іх.* **3.** Не родны чалавек, не сваяк. ‖ *ж.* **чужа́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (да 1 знач.). ‖ *прым.* **чужа́цкі**, -ая, -ае.

**ЧУЖА́НІН**, -а, *мн.* чужа́не, чужа́н, *м.* (нар.-паэт.). Чужынец.

**ЧУЖАНІ́ЦА**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -ы, *Т* -ай (-аю), *ж. мн.* -ы, -ніц. **1.** Чужы, нетутэйшы чалавек; іншаземны захопнік. **2.** Чалавек, які па духу, поглядах і пад. чужы ў якім-н. асяроддзі. **3.** Не родны, не сваяк.

**ЧУЖАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. Чужы; неўласцівы, нехарактэрны. *Чужародныя з'явы.* ‖ *наз.* **чужаро́днасць**, -і, *ж.*

**ЧУЖА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Пазбягаць каго-, чаго-н.; цурацца. *Родныя не чужаліся яго.* **2.** Не праяўляць цікавасці да чаго-н. *Крытык не чужаўся гісторыі.*

**ЧУЖЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Не ўласны, які належыць каму-н. іншаму, не свой. *Чужая кніга. Ч. дом. Не браць чужога* (наз.). **2.** Не звязаны роднаснымі, сваяцкімі, блізкімі адносінамі. *Акрамя брата і сястры тут былі і чужыя людзі.* **3.** Які не з'яўляецца месцам пастаяннага жыхарства, радзімай для каго-н. *Чужая старонка.* **4.** Далёкі па сваіх поглядах, інтарэсах ад чаго-н. ‖ *наз.* **чу́жасць**, -і, *ж.* (да 2 і 4 знач.).

**ЧУЖЫНА́**, -ы́, *ж.* Нядродная, чужая краіна, зямля. *Жыць на чужыне.*

**ЧУЖЫ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Чужы, нетутэйшы чалавек; іншаземны вораг, захопнік. *Вызваліць родную зямлю ад чужынцаў.* ‖ *ж.* **чужы́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **чужы́нскі**, -ая, -ае.

**ЧУ́ЙНЫ**, -ая, -ае (разм.). **1.** Які звяртае на ўсё пільную ўвагу; здольны востра чуць, тонка адчуваць. *Дзеці былі пад чуйным наглядам маці. Чуйнае вуха.* **2.** Які востра перажывае што-н., рэагуе на што-н. *Ч. да чужога гора.* **3.** Асцярожны; насцярожаны. *Чуйныя крокі.* **4.** Неглыбокі, чуткі. *Ч. сон. Чуйная дрымота.* ‖ *наз.* **чу́йнасць**, -і, *ж.*

**ЧУ́КЧЫ**, -аў, *адз.* чу́кча, -ы, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Чукоцкай і Каракскай аўтаномных акруг, што ўваходзяць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **чукча́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ЧУЛЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Якому ўласціва ўспрымальнасць знешніх, фізічных раздражненняў. *Чуллівыя нервы.* **2.** Які здольны ўлавіць нават нязначнае знешняе ўздзеянне. *Ч. прыбор.* **3.** Здольны да сентыментальнасці, тонкаадчувальны. *Чуллівае сэрца. Ад гора людзі робяцца чуллівымі да іншых.* ‖ *наз.* **чуллі́васць**, -і, *ж.*

**ЧУ́ЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які адносіцца да каго-н. з любоўю, уважліва, спагадліва. *Ч. чалавек.* **2.** Які сведчыць пра ўважлівасць,

спагадлівасць да людзей. *Чулыя словы.* **3.** Уражлівы, успрымальны. *Чулае дзіцячае сэрца.* **4.** Які тонка, лёгка ўспрымае што-н. органамі пачуццяў. *Ч. слых.* ‖ *наз.* **чуласць**, -і, *ж.*

**ЧУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лёгкае пераноснае жыллё конусападобнай формы ў некаторых паўночных народаў, якое зроблена з жэрдак, абцягнутых шкурамі, карой, войлакам і пад. ‖ *прым.* **чу́мны**, -ая, -ае.

**ЧУМА́**, -ы́, *ж.* Вострая інфекцыйная хвароба. *Эпідэмія чумы.* ‖ *прым.* **чу́мны**, -ая, -ае.

**ЧУМА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (уст.). Возчык і гандляр ва Украіне і на поўдні Расіі, які перавозіў на валах соль, рыбу і іншыя тавары. ‖ *прым.* **чума́цкі**, -ая, -ае. *Ч. абоз.*

**ЧУМАКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; *незак.* (уст.). Займацца чумацкім промыслам, быць чумаком. ‖ *наз.* **чумакава́нне**, -я, *н. і* **чума́цтва**, -а, *н.*

**ЧУМІ́ЗА**, -ы, *ж.* Расліна сямейства злакавых, падобная на проса. ‖ *прым.* **чумі́зны**, -ая, -ае.

**ЧУ́НІ**, -яў, *адз.* чунь, -я, *м.* Гумавы ці скураны абутак у выглядзе галёшаў, якія надзяваюцца пры рабоце ў шахтах, рудніках і пад.; бахілы.

**ЧУПРЫ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ры́н, *ж.* Пасма валасоў, якая спадае на лоб або ўзнімаецца над ілбом; чуб; а таксама валасы наогул. *Густая ч.*

**ЧУРЭ́К**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* На Каўказе: плоскі прэсны белы хлеб у форме вялікай ляпёшкі. ‖ *прым.* **чурэ́чны**, -ая, -ае.

**ЧУ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Вестка аб кім-, чым-н., звычайна яшчэ не пацверджаная. *Чуткамі зямля поўніцца.*

**ЧУ́ТКІ**, -ая, -ае. **1.** Які лёгка і добра ўспрымае што-н. слыхам, нюхам. *Чуткія сабакі.* **2.** Уражлівы, успрыімлівы. *Чуткая душа.* **3.** Неглыбокі, лёгкі. *Ч. сон.* ‖ *наз.* **чу́ткасць**, -і, *ж.*

**ЧУ́ТНА** *і* **ЧУТНО́**. **1.** *безас., у знач. вык.* Можна чуць. *Не ч. песень.* **2.** *безас., у знач. вык.* Ёсць звесткі (разм.). *Пра яго нічога не ч. Ніякіх навін не ч.?* **3.** *у знач. пабочн. сл.* Кажуць, як кажуць, нібыта (разм.). *Ён, ч., добра зарабляе.*

**ЧУ́ТНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Ступень выразнасці гучання. *Дрэнная ч. радыёперадачы.* **2.** Магчымасць чуць, слухаць каго-, што-н. *Зона чутнасці.*

**ЧУТНО́** *гл.* чутна.

**ЧУ́ТНЫ**, -ая, -ае; чуцён, чутна́, -но́. **1.** Такі, што можна чуць. *Ледзь ч. шэпт старога бору.* **2.** *у знач. вык.* Чуецца, гучыць, адчуваецца. *У кнізе ч. подых гераічнай гісторыі Беларусі.*

**ЧУ́ТЫ**, -ая, -ае. Вядомы, аб якім ужо чулі. *Чутае здарэнне.* ◊ **Дай бог чутае бачыць** (разм.) — пра пажаданне здзяйснення абяцанага.

**ЧУ́ХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** Чухаць, скрэбці сваё цела ці якуюн. яго частку. *Сабака чухаецца.* **2.** *перан.* Рабіць што-н. марудна, без жадання (разм.). *Хопіць ч., пара справамі займацца.* ‖ *зак.* **пачу́хацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **чу́ханне**, -я, *н.*

**ЧУ́ХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак., каго-што.* **1.** Скрэбці, драпаць, каб пазбавіцца свербу. *Ч. спіну.* **2.** *перан.* Трывожыць, турбаваць каго-н. (разм.). ◊ **Чухаць патыліцу** (разм.) — быць заклапочаным чым-н. ‖ *зак.* **пачу́хаць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **чу́ханне**, -я, *н.*

**ЧУ́ЦЦА**, чу́юся, чу́ешся, чу́ецца; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Быць чутным, успрымацца на слых. *Чулася музыка. Чуўся смех.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Успрымацца органамі пачуццяў; адчувацца. *Чуецца пах кветак. У песні чуўся смутак і жальба.* **3.** *у знач. пабочн. сл.* **чу́ецца, чу́лася.** Адчувацца, думацца. *Яна ківала галавой, але, чулася, была занята сваімі думкамі.* **4.** *як* або *якім чынам.* Адчуваць сябе, быць у пэўным стане. *Добра чулася нам у лесе.* ‖ *зак.* **пачу́цца**, -чуецца (да 1 і 2 знач.).

**ЧУЦЦЁ**, -я́, *н.* **1.** Здольнасць жывёл адшукваць, заўважаць што-н. органамі пачуццяў, пераважна нюхам. **2.** *перан.* Здольнасць чалавека разумець, угадваць, заўважаць што-н. *Прафесійнае ч.*

**ЧУЦЬ**[1], чую, чуеш, чу́е; чу́ты; *незак.* **1.** *каго-што.* Успрымаць што-н. на слых, пры дапамозе органаў слыху. *Ч. птушыны спеў. Ч. музыку.* **2.** *без дап.* Мець слых. *Ён дрэнна чуе.* **3.** *аб кім-чым, пра каго-што* і *з дадан.* Атрымліваць якія-н. звесткі, даведвацца. *Ці чулі навіну? Я чуў, што ў вас былі госці.* **4.** *каго-што* і *з дадан.* Успрымаць, пазнаваць шляхам адчування; адчуваць. *Птушкі чуюць пахаладанне. Ты чуеш, што пахне дымам?* **5.** (са словам «сябе»). Мець пэўныя (фізічныя, псіхічныя) адчуванні; адчуваць. *Ён чуў сябе тут як дома.* **6.** *у знач. пабочн. сл.* **чу́еш (чу́еце).** Ужыв. для пацвярджэння сказанага, як настойлівае ўказанне, патрабаванне чаго-н. (разм.). *Толькі не спазніся, чуеш! Прыязджай абавязкова, чуеш!* ◊ **Дух чуць чый** (разм.) — адчуваць чыю-н. строгасць, баяцца каго-н. **І чуць не чуў** (разм.) — поўны адказ ад чаго-н. **На свае (уласныя) вушы чуць; сваімі вушамі чуць** — непасрэдна самому чуць што-н. **Не чуць душы ў кім** (разм.) — вельмі моцна, бязмежна любіць каго-н. **Не чуць зямлі пад сабой** (разм.) — адчуваць вялікую радасць, захапленне. **Не чуць ног пад сабой** (разм.) — вельмі стаміцца ад бегу, доўгай хадзьбы і пад. **Чуць з трэціх вуснаў** — чуць што-н. не непасрэдна, а праз каго-н. **Чуць краем вуха** (разм.) — часткова, няпоўнасцю, няправільна чуць што-н. ‖ *зак.* **пачу́ць**, -чу́ю, -чу́еш, чу́е; -чу́ты (да 1, 3 і 4 знач.).

**ЧУЦЬ**[2], *прысл.* і *злуч.* **1.** *прысл.* Ледзь, ледзьве. *Стаміўся, што ч. дадому дайшоў.* **2.** *прысл.* Зусім нямнога, злёгку. *Ч. больш. Ч. лепш.* **3.** *злуч.* Ужыв. ў дададзеных часавых сказах у знач.: як толькі, ледзь толькі. *Ч. узыдзе сонца — маці ўжо на нагах.* ◊ **Чуць-чуць** — зусім нямнога. **Чуць што** — як толькі што здарыцца, пры ўсякім выпадку.

**ЧУ́ЧАЛА**, -а, *мн.* -ы, чу́чал, *н.* **1.** Напханая чым-н. скура жывёлы ці птушкі, якая знешнім выглядам нагадвае жывую жывёлу ці птушку. *Ч. зубра. Ч. вароны.* **2.** Фігура, падобная на чалавека, для адпуджвання птушак у садзе, агародзе; пудзіла. *Агароднае ч.* **3.** Пра неахайнага, бруднага, дрэнна апранутага чалавека (разм., пагард.). *Што ў цябе за выгляд? Не чалавек, а ч.!* **4.** Ужыв. як лаянкавае слова (разм.). *Ч. ты гарохавае.* ‖ *прым.* **чу́чальны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЧУ́ШКА**[1], -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (разм.). Свіння.

**ЧУ́ШКА**[2], -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* (спец.). Невялікі злітак металу ў форме бруска, звычайна прызначаны для пераплаўкі. *Ч. чыгуну.* ‖ *прым.* **чу́шкавы**, -ая, -ае.

**ЧХАЦЬ**, чха́ю, чха́еш, чха́е; *незак.* **1.** Міжвольна з шумам выдыхаць паветра праз нос пры раздражненні слізістай абалонкі. **2.** Утвараць рэзкія адрывістыя гукі пры нераўнамернай рабоце (пра маторы, механізмы і пад.; разм.). **3.** *перан., на каго-што.* Не звяртаць увагі, выказваючы пагарду да каго-н. (разм., груб.). *Чхаў я на яго. Чхаў ён на такія загады.* ‖ *зак.* **чхнуць**, -ну, -неш, -не; -нём, -няце́, -нуць; -ні (да 1 знач.). ‖ *наз.* **чха́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **чха́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Ч. газ.*

**ЧЫГУ́Н**, -у́ *і* -а́, *м.* **1.** -у́. Сплаў жалеза з вугляродам, больш крохкі, менш коўкі, чым сталь. *Выплаўка чыгуну.* **2.** -а́. Гаршчок з такога сплаву. *Паставіць ч. у печ.* ‖ *памянш.* **чыгуно́к**, -нка́, *мн.* -нкі́, -нко́ў, *м.* (да 2 знач.) *і* **чыгу́нчык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (да 2 знач.). ‖ *прым.* **чыгу́нны**, -ая, -ае.

**ЧЫГУНАЛІЦЭ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да выплаўкі, ліцця чыгуну (у 1 знач.) *Ч. завод.*

**ЧЫГУНАЛІЦЭ́ЙШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які займаецца выплаўкай чыгуну, ліццём чыгунных вырабаў.

**ЧЫГУНАПЛАВІ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *чыгуналіцейны. Ч. завод.*

**ЧЫГУ́НАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік чыгуначнага транспарту. ‖ *ж.* **чыгу́начніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЧЫГУ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* **1.** Рэйкавая дарога, прызначаная для руху цягнікоў. *Пракласці чыгунку. Рамонт чыгункі.* **2.** Комплекснае транспартнае прадпрыемства, якое забяспечвае перавозку пасажыраў і грузаў па такой дарозе. *Працаваць дыспетчарам на чыгунцы.* **3.** Чыгунная печка (разм.). ‖ *прым.* **чыгу́начны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ЧЫЖ**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Невялікая лясная пеўчая птушка сямейства ўюрковых. ‖ *прым.* **чыжо́ў**, -жо́ва *і* **чыжо́вы**, -ая, -ае.

**ЧЫ́ЖЫК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *чыж.* ‖ *прым.* **чы́жыкавы**, -ая, -ае.

**ЧЫ́ЖЫК**[2], -а, *м.* Дзіцячая гульня, у якой завостраная з двух канцоў палачка заганяецца кіем у круг, а таксама сама такая палачка. *Гуляць у чыжыка.*

**ЧЫЙ**[1], чыя́, чыё, *займ. пыт.* і *адносны.* **1.** *пыт.* Указвае на прыналежнасць каго-,

чаго-н. каму-н. *Чыя гэта хата? Чый гэта нож?* **2.** *пыт.* і *адносны.* З якой сям'і, з якога роду. *Чый ты будзеш?* **3.** Тое, што і *чый-небудзь* (разм.). *Не хадзі босы, абуй чые чаравікі.* **4.** *адносны.* Падпарадкоўвае даданыя азначальныя сказы. *Гэта быў чалавек, чыя хата стаяла на ўзлеску.* **5.** *адносны.* Падпарадкоўвае даданыя дапаўняльныя сказы. *Настаўніца паведаміла вучням, чыё сачыненне лепшае.* **6.** *адносны.* Падпарадкоўвае даданыя дзейнікавыя сказы. *Няхай той, чыя гэта шапка, і забярэ яе.*

**ЧЫЙ**[2], чы́ю, *м.* **1.** Высокі стэпавы кавыль, які расце ў Сярэдняй і Цэнтральнай Азіі. *Сцябло чыю.* **2.** Высушаныя сцёблы гэтай расліны, якія выкарыстоўваюцца для пляцення розных вырабаў, а таксама як сыравіна для папяровай і цэлюлознай вытворчасці.

**ЧЫЙ-НЕ́БУДЗЬ**, чыя́-не́будзь, чыё-не́будзь; *займ. неазнач.* Які належыць каму-н.

**ЧЫЙ-НІЧЫ́Й**, чыя́-нічыя́, чыё-нічыё; *займ. неазнач.* Які належыць сяму-таму.

**ЧЫ́ЙСЬЦІ**, чыя́сьці, чыёсьці, *займ. неазнач.* Які невядома каму належыць. *Пачуўся ч. стук. Ляжала на стале чыясьці кніжка.*

**ЧЫК**, *выкл.* (разм.). **1.** Ужыв. гукапераймальна для абазначэння кароткага адрывістага трэску, ляску і пад. *Ухаце чыкалі ходзікі: чык-чык...* **2.** *у знач. вык.* Ужыв. ў знач. дзеясл. чыкаць—чыкнуць. *Нажом чык — і пальца няма.*

**ЧЫ́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак., з кім-чым* (разм.). Валаводзіцца, вазіцца. *Чаго з ім ч.!*

**ЧЫ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Пра гукі, якія ўтвараюцца работай некаторых механізмаў. *Гадзіннік чыкае.* **2.** *што* і *без дап.* Хутка рэзаць, сячы і пад. (разм.). ‖ *аднакр.* **чы́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **чы́канне**, -я, *н.*

**ЧЫКІЛЬГА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* Ісці, кульгаючы, прыпадаючы на адну нагу. ‖ *наз.* **чыкільга́нне**, -я, *н.*

**ЧЫКІЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* Тое, што і *чыкільгаць.* ‖ *наз.* **чыкіля́нне**, -я, *н.*

**ЧЫЛІ́ЙЦЫ**, -аў, *адз.* чылі́ец, -лі́йца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Чылі. ‖ *ж.* **чылі́йка**, -і, *ДМ* -лі́йцы, *мн.* -і, -лі́ек. ‖ *прым.* **чылі́йскі**, -ая, -ае.

**ЧЫЛІ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *цырыкаць.* ‖ *наз.* **чылі́канне**, -я, *н.*

**ЧЫМ**[1], *злуч.* **1.** *злуч. параўнальны.* Ужыв. для сувязі параўнальных сказаў і членаў сказа са значэннем параўнання, супастаўлення, якія паясняюць у галоўным сказе прыслоўе ці прыметнік у форме вышэйшай ступені параўнання. *Лепш ехаць, чым ісці. Я крыху дужэйшы, чым ты думаеш.* **2.** *злуч. супастаўляльны.* Падпарадкоўвае даданыя супастаўляльныя сказы і часткі сказа пры суадносным слове «тым» у галоўным сказе. *Чым хутчэй імчыцца аўтамабіль, тым далей павінны свяціць яго фары.* **3.** Уваходзіць у склад састаўнога непадзельнага злучніка «перш чым», пры дапамозе якога падпарадкоўваюцца даданыя часавыя сказы. *Перш чым есці, трэба мыць рукі.*

**ЧЫМ**[2] *гл.* што.

**ЧЫ́МСЬЦІ** *гл.* штосьці[1].

**ЧЫ́МСЯ**[1], *злуч. параўнальны* (разм.). Ужыв. для сувязі параўнальных зваротаў, якія паясняюць адзін з членаў сказа ў форме вышэйшай ступені параўнання. *Мёд саладзейшы, ч. цукеркі.*

**ЧЫ́МСЯ**[2], *займ. неазнач.* (разм.). Тое, што і *чымсьці. Ён быў ч. незадаволены.*

**ЧЫН**[1], -у *і* -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** -у. Службовы разрад у вайсковых і цывільных служачых. *Ч. маёра. На заводзе ў яго быў вялікі ч., дырэктарскі.* **2.** -а. Пасада або асоба, якая займае пасаду (разм.). *Чыны дыпламатычнага рангу.* ○ **Класныя чыны** — цывільныя званні, якія прысвойваюцца пракурорска-следчым работнікам пракуратуры. **Ніжні чын** — салдат у царскай арміі ў адрозненне ад афіцэраў. ◊ **Чын чынам (чынаром); чын па чыну** (разм.) — найлепш; так, як трэба.

**ЧЫН**[2], -у, *м.* У *Т* адз. л. ў спалучэнні з прыметнікам і займеннікам ужыв. ў знач.: спосаб, прыём; гэта спалучэнне адпавядае прыслоўю са знач. дадзенага прыметніка або займенніка. *Такім чынам. Належным чынам. Адпаведным чынам.* ◊ **Грэшным чынам** (у знач. пабочн. сл.; разм.) — трэба прызнацца; на жаль.

**ЧЫНАДРА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., пагард.). Чыноўнік, бюракрат.

**ЧЫНА́РА**, -ы, *мн.* -ы, -на́р, *ж.* Дрэва сямейства платанавых; усходні платан. ‖ *прым.* **чына́равы**, -ая, -ае.

**ЧЫНАШАНАВА́ННЕ**, -я, *н.* (уст., іран.). Павага, шанаванне старшых па чыне, па службовым становішчы.

**ЧЫНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., чы́ніцца; *незак.* Рабіцца, дзеяцца, адбывацца. *У весцы чынілася несправядлівасць.*

**ЧЫНІ́ЦЬ**, чыню́, чы́ніш, чы́ніць; чы́нены; *незак., што.* **1.** Рабіць, учыняць, тварыць. *Запас бяды не чыніць.* **2.** Рабіць кудзелю. *Жанчыны чынілі кудзелю.* ‖ *зак.* **учыні́ць**, -чыню́, -чы́ніш, -чы́ніць; -чы́нены (да 1 знач.).

**ЧЫ́ННЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** Дзейсны, актыўны. *Браць ч. ўдзел у грамадскім жыцці.* **2.** Важны, салідны. *Ч. выгляд.* ‖ *наз.* **чы́ннасць**, -і, *ж.*

**ЧЫНО́ЎНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Дзяржаўны служачы, які мае чын або займае дзяржаўную пасаду. **2.** *перан.* Той, хто выконвае сваю работу фармальна, без жывога інтарэсу, строга па інструкцыі. ‖ *прым.* **чыно́ўніцкі**, -ая, -ае *і* **чыно́ўны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЧЫНО́ЎНІЦТВА**, -а, *н.* **1.** *зб.* Чыноўнікі (*гл.* чыноўнік у 1 знач.). *Дробнае ч.* **2.** *перан.* Паводзіны, псіхалогія, уласцівыя чыноўніку (у 2 знач.). *Яму не ўласціва ч.*

**ЧЫНУ́ША**, -ы, *ДМ* -у, *Т* -ам, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., пагард.). Чыноўнік, бюракрат.

**ЧЫНШ**, -у, *м.* (гіст.). **1.** У феадальнай Еўропе: рэгулярныя натуральныя і грашовыя плацяжы зямельнаму ўласніку за карыстанне зямлёй. **2.** У Беларусі і Літве ў 15—19 стст.: грашовы аброк. ‖ *прым.* **чы́ншавы**, -ая, -ае.

**ЧЫНШАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (гіст.). **1.** У феадальнай Еўропе: селянін, які карыстаўся зямлёй часова або бестэрмінова, за што плаціў чынш. **2.** У Беларусі і Літве ў 15—19 стст.: селянін, асноўнай формай павіннасці якога быў грашовы аброк, чынш. ‖ *прым.* **чыншаві́цкі**, -ая, -ае.

**ЧЫРАНЁ** *гл.* чыраня.

**ЧЫРА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Тое, што і *чырок.*

**ЧЫРАНЯ́** *і* **ЧЫРАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Птушаня чырка.

**ЧЫ́РВА** *гл.* чырвы.

**ЧЫРВАНА...** (*гл.* **чырвона...**). Першая састаўная частка складаных слоў; ужыв. замест «чырвона...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *чырванагруды, чырваназорны, чырващносы, чырванатвары, чырванафлоцец.*

**ЧЫРВАНАБО́КІ**, -ая, -ае. З чырвоным бокам. *Ч. яблык.*

**ЧЫРВАНАВА́ТЫ**, -ая, -ае. З чырвоным адценнем, блізкі па колеры да чырвонага.

**ЧЫРВАНАВО́КІ**, -ая, -ае. З чырвонымі вачамі. *Чырванавокая плотка.*

**ЧЫРВАНАГУ́БЫ**, -ая, -ае. З чырвонымі губамі.

**ЧЫРВАНАДЗЮ́БЫ**, -ая, -ае. З чырвонай дзюбай.

**ЧЫРВАНАДРЭ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Зроблены з чырвонага дрэва. *Чырванадрэўная мэбля.*

**ЧЫРВАНАДРЭ́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па вырабе мэблі з каштоўных гатункаў драўніны.

**ЧЫРВАНАЗЁМ**, -у, *м.* Урадлівая, багатая перагноем жалезістая глеба субтрапічнай зоны. ‖ *прым.* **чырваназёмны**, -ая, -ае.

**ЧЫРВАНАНО́ГІ**, -ая, -ае. З чырвонымі нагамі. *Ч. бусел.*

**ЧЫРВАНАНО́СЫ**, -ая, -ае. З чырвоным носам.

**ЧЫРВАНАПЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Рыба сямейства карпавых з чырвонымі плаўнікамі.

**ЧЫРВАНАПЁРЫ**, -ая, -ае. З чырвоным апярэннем (пра птушак), з чырвонымі плаўнікамі (пра рыб).

**ЧЫРВАНАСКУ́РЫ**, -ая, -ае. **1.** З чырвонай або чырванаватай скурай. *Ч. твар.* **2.** З цёмна-жоўтай, чырванаватай афарбоўкай скуры (пра індзейцаў Амерыкі).

**ЧЫРВАНАСЦЯ́ЖНЫ**, -ая, -ае. Узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. *Ч. ансамбль.*

**ЧЫРВАНАТВА́РЫ**, -ая, -ае. З чырвоным тварам. *Ч. лейтэнант.*

**ЧЫРВАНАФЛО́ЦЕЦ**, -ло́тца, *мн.* -ло́тцы, -ло́тцаў, *м.* Воінскае званне радавога саставу Ваенна-Марскіх Сіл СССР (з 1935 г. да 1946 г., калі яно было заменена

званнем «матрос»). ‖ *прым.* **чырванафло́цкі**, -ая, -ае.

**ЧЫРВАНАШЧО́КІ**, -ая, -ае. З чырвонымі, румянымі шчокамі. *Ч. хлопчык.* ‖ *наз.* **чырванашчо́касць**, -і, *ж.*

**ЧЫРВАНЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** Станавіцца, рабіцца чырвоным. *На захадзе пачынала ч. неба.* **2.** Пакрывацца румянцам, станавіцца чырвоным ад прыліву крыві. *Ч. ад злосці.* **3.** *перан.* Саромецца. *Гаворыць няпраўду і не чырванее.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вылучацца сваім чырвоным колерам, віднецца (пра што-н. чырвонае). ‖ *зак.* **счырване́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 2 і 3 знач.) *і* **пачырване́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 1 і 2 знач.).

**ЧЫРВАНІ́ЦЦА**, -ванюся, -во́нішся, -во́ніцца; *незак.* **1.** Афарбоўвацца ў чырвоны колер. **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Вылучацца сваім чырвоным колерам.

**ЧЫРВАНІ́ЦЬ**, -ваню́, -во́ніш, -во́ніць; -во́нены; *незак., каго-што.* **1.** Рабіць чырвоным, барвовым, надаваць чырвоны колер каму-, чаму-н. *Узыходзіла сонца і чырваніла неба.* **2.** Фарбаваць у чырвоны колер.

**ЧЫ́РВАНЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* чырвоны. **2.** Чырвоная пляма, пачырваненне ад прыліву крыві, запаленне. **3.** Румянец. *Твар наліўся чырванню.*

**ЧЫРВОНА...** *і* **ЧЫРВОНА-...** (а таксама **чырвана...**) Першая састаўная частка складаных слоў са знач. чырвоны (у 1—3 знач.), з чырвоным, напр.: *чырвонагаловы, чырвонагвардзейскі, чырвонаармеец; чырвона-карычневы, чырвона-пярэсты.*

**ЧЫРВОНААРМЕ́ЕЦ**, -ме́йца, *мн.* -ме́йцы, -ме́йцаў, *м.* (гіст.). Баец Чырвонай Арміі. ‖ *прым.* **чырвонаарме́йскі**, -ая, -ае.

**ЧЫРВОНАГАЛО́ВІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *падасінавік.*

**ЧЫРВОНАГАЛО́ВЫ**, -ая, -ае. З чырвонай галавой, галоўкай. *Ч. дзяцел. Ч. грыб.*

**ЧЫРВОНАГВАРДЗЕ́ЕЦ**, -дзе́йца, *мн.* -дзе́йцы, -дзе́йцаў, *м.* (гіст.). Баец Чырвонай гвардыі. ‖ *прым.* **чырвонагвардзе́йскі**, -ая, -ае.

**ЧЫРВО́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* **1.** Назва замежных залатых манет (дукатаў, цэхінаў) у дапятроўскай Расіі. **2.** Найменне рускіх залатых манет 3-рублёвай і 5-рублёвай вартасці ў 18—19 стст. **3.** З 1922 г. да 1947 г.: грашовы крэдытны білет у 10 рублёў. ‖ *прым.* **чырво́нцавы**, -ая, -ае.

**ЧЫРВО́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае афарбоўку аднаго з асноўных колераў спектра, што ідзе перад аранжавым; колеру крыві. *Чырвоныя памідоры. Ч. аловак.* **2.** Пачырванелы ад прыліву крыві да скуры. *Ч. твар.* **3.** Звязаны з рэвалюцыйнай дзейнасцю, з савецкім ладам, з Чырвонай Арміяй. *Ч. камандзір. Чырвоныя* (наз.) *уступалі ў горад.* **4.** Як састаўная частка некаторых батанічных і заалагічных назваў. *Ч. перац.* ○ **Чырвонае віно** — віно, прыгатаванае з цёмных гатункаў вінаграду. **Чырвоная кніга** — кніга Міжнароднага саюза аховы прыроды і прыродных рэсурсаў, якая змяшчае ў сабе кароткія звесткі аб распаўсюджанні, колькасці, біялогіі і мерах аховы рэдкіх відаў жывёл і раслін усяго свету. **Чырвоная рыба** — рыба сямейства асятровых. **Чырвоны лес** — хваёвы лес. **Чырвоны напал** — такая ступень нагрэву, пры якой металы пачынаюць свяціцца чырвоным святлом. **Чырвоны радок** — першы радок абзаца. ‖ *наз.* **чы́рвань**, -і, *ж.* (да 1 і 2 знач.).

**ЧЫ́РВЫ**, -аў, *адз.* чы́рва, -ы, *ж.* Карцачная масць з малюнкам у выглядзе чырвоных сэрцаў. ‖ *прым.* **чырво́вы**, -ая, -ае.

**ЧЫРК**, *выкл.* **1.** Ужыв. гукапераймальна для перадачы кароткага гуку пры трэнні. **2.** *у знач. вык.* Ужыв. ў знач. дзеясл. чыркаць (разм.). *На кавалку паперы — ч. ды ч.*

**ЧЫ́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Праводзіць чым-н. па чым-н., пакідаючы след, лінію. *Ч. бульбу па тарцы.* **2.** Хутка, неакуратна пісаць. **3.** Утвараць характэрныя гукі (пра некаторых птушак). ‖ *аднакр.* **чыркану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1 і 2 знач.) *і* **чы́ркнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 3 знач.). ‖ *наз.* **чы́рканне**, -я, *н.*

**ЧЫРО́К**, -рка́, *мн.* -ркі́, -рко́ў, *м.* Невялікая вадаплаўная птушка падсямейства качак. ‖ *прым.* **чырко́вы**, -ая, -ае.

**ЧЫРЫ́КАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* Тое, што і *цырыкаць.* ‖ *аднакр.* **чыры́кнуць**, -не. ‖ *наз.* **чыры́канне**, -я, *н.*

**ЧЫСЛО́**, -а́, *н.* Дзень у парадкавым радзе іншых дзён гэтага месяца; дата. *Адзначыць заднім числом.*

**ЧЫСТАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Чыставы рукапіс, чыставы варыянт чаго-н. *Перапісаць у ч.*

**ЧЫСТАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** Перапісаны, перароблены начыста; выпраўлены. **2.** Прызначаны для канчатковай апрацоўкі дэталей (спец.). *Ч. разец. Чыставая апрацоўка.*

**ЧЫСТАГАТУНКО́ВЫ**, -ая, -ае. Адборны, чыстага гатунку. *Чыстагатунковае насенне.* ‖ *наз.* **чыстагатунко́васць**, -і, *ж.*

**ЧЫСТАКРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *мн.* -і, -ро́вак, *ж.* (разм.). Чыстакроўная, парадзістая жывёла.

**ЧЫСТАКРО́ЎНЫ**, -ая, -ае. **1.** Чыстай, не змешанай пароды (пра жывёл). *Жарабец чыстакроўнай пароды.* **2.** Сапраўдны, праўдзівы (разм.). *Ч. арыстакрат.* ‖ *наз.* **чыстакро́ўнасць**, -і, *ж.*

**ЧЫСТАПАРО́ДНЫ**, -ая, -ае. Які належыць да якой-н. адной пароды, мае ўласцівыя ёй прыкметы (пра племянную жывёлу). *Чыстапародная жывёла.* ‖ *наз.* **чыстапаро́днасць**, -і, *ж.*

**ЧЫСТАПІСА́ННЕ**, -я, *н.* (уст.). Вучэбны прадмет у пачатковых класах, які ставіў сваёй мэтай выпрацоўку прыгожага выразнага почырку ў вучняў (у савецкай школе). *Урок чыстапісання.*

**ЧЫСТАСАРДЭ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Шчыры, адкрыты. *Ч. чалавек. Чыстасардэчнае прызнанне.* ‖ *наз.* **чыстасардэ́чнасць**, -і, *ж.*

**ЧЫСТАСО́РТНЫ**, -ая, -ае. Не змешаны, адборны, вышэйшага, чыстага сорту. *Чыстасортная пшаніца.* ‖ *наз.* **чыстасо́ртнасць**, -і, *ж.*

**ЧЫСТАТА́**, -ы́, *ДМ* -таце́, *ж.* Тое, што і *чысціня.*

**ЧЫСТАЦЕ́Л**, -у, *м.* Травяністая расліна сямейства макавых з жоўтымі кветкамі, сабранымі ў парасонападобныя суквецці, і млечным сокам; падтыннік.

**ЧЫ́СТЫ**, -ая, -ае; чысце́йшы. **1.** Незабруджаны, незапэцканы. *Чыстая бялізна. Чыстая падлога.* **2.** Пра работу: які патрабуе кваліфікацыі, умення; звязаны з тым, што не вельмі пэцкае, брудзіць. *Ён прывык працаваць на чыстай рабоце.* **3.** Выкананы, зроблены акуратна, старанна, без хібаў. *Шкатулка чыстай работы.* **4.** Са свабоднай, адкрытай, нічым не занятай паверхняй. *Чыстае поле. Ч. ліст паперы. Чыстае неба.* **5.** Без пабочных дамешак або з нязначнымі дамешкамі. *Ч. спірт. Чыстая шэрсць. Чыстае паветра. Чыстая вада.* **6.** Выразны ў гучанні, без пабочных шумаў, гукаў. *Даносіўся ч. гук званоў. Ч. голас салаўя.* **7.** Які адпавядае пэўным нормам, правілам (пра мову, склад і пад.). *Гаварыў на чыстай беларускай мове.* **8.** *перан.* Маральна бездакорны, сумленны, шчыры; без карыслівых думак і дзеянняў. *Чалавек з чыстым сумленнем. Чыстыя пачуцці.* **9.** Абсалютны, поўны (разм.). *Чыстая праўда. Гэта чыстая выпадковасць.* **10.** Не звязаны з практычным прымяненнем; *проціл.* прыкладны́. *Чыстая тэорыя.* ○ **Чыстая вага** — вага чаго-н. без посуду, без упакоўкі і пад.; нета. ‖ *наз.* **чыстата́**, -ы́, *ДМ* -таце́, *ж.* (да 1, 3—5 і 8 знач.).

**ЧЫ́СЦЕЦ**, -стца, *м.* Паводле вучэння каталіцкай царквы: месца, дзе душы нябожчыкаў ачышчаюцца ад грахоў, перш чым трапіць у рай.

**ЧЫСЦЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* Станавіцца больш чыстым (у 1, 4 і 7 знач.).

**ЧЫСЦЁХА**, -і, *ДМ* -у, *Т* -ам, *м.; ДМ* -цёсе, *Т* -ай (-аю), *ж., мн.* -і, -цёх (разм.). Пра таго, хто вельмі любіць чысціню і імкнецца да чысціні. *Жонка мая вялікая ч.*

**ЧЫ́СЦІК**[1], -у, *м.* Травяністая расліна сямейства ясноткавых з кветкамі, сабранымі ў мяцёлкі, і шурпатаваласістым сцяблом.

**ЧЫ́СЦІК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Марская птушка атрада чысцікавых, якая жыве на скалах па берагах паўночных мораў. ‖ *прым.* **чы́сцікавы**, -ая, -ае.

**ЧЫСЦІ́ЛІШЧА**, -а, *н.* Тое, што і *чысцец.* ‖ *прым.* **чысці́лішчны**, -ая, -ае.

**ЧЫСЦІ́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік, які займаецца чысткай чаго-н. *Ч. дымаходаў. Ч. ботаў.* ‖ *ж.* **чысці́льшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц.

**ЧЫСЦІНЯ́**, -і́, *ж.* **1.** *гл.* чысты. **2.** Чысты стан чаго-н. *Захоўваць чысціню і парадак у кватэры, на рабочым месцы.*

**ЧЫ́СЦІЦЦА**, чы́шчуся, чы́сцішся, чы́сціцца; *незак.* Чысціць (у 1 знач.) сябе ці сваё адзенне, абутак. ‖ *зак.* **вы́чысціцца**, -чышчуся, -чысцішся, -чысціцца *і* **пачы́сціцца**, -чы́шчуся, -чы́сцішся, -чы́сціцца. ‖ *наз.* **чы́шчанне**, -я, *н. і* **чы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*

**ЧЫ́СЦІЦЬ**, чы́шчу, чы́сціш, чы́сціць; чы́шчаны; *незак.* **1.** *каго-што.* Рабіць чыстым, здымаючы гразь, пыл і пад. з паверхні чаго-н. *Ч. касцюм.* **2.** *што.* Здымаць лупіны, скуру, луску і пад. (з гародніны, садавіны, рыбы і інш.; разм.). *Ч. бульбу. Ч. рыбу.* **3.** *што.* Ачышчаць, вызваляць ад таго, што забруджвае, загрувашчвае што-н. *Ч. сад.* **4.** *перан., каго-што.* Абкрадаць, рабаваць (разм.). **5.** *перан., каго (што).* Лаяць каго-н., сварыцца на каго-н. (разм.). ‖ *зак.* **вы́чысціць**, -чышчу, -чысціш, -чысціць; -чышчаны (да 1 і 3 знач.), **ачы́сціць**, -чы́шчу, -чы́сціш, -чы́сціць; -чы́шчаны (да 1—4 знач.) *і* **пачы́сціць**, -чы́шчу, -чы́сціш, -чы́сціць; -чы́шчаны (да 1—4 знач.). ‖ *наз.* **чы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.*, **чы́шчанне**, -я, *н.* (да 1—3 знач.) *і* **ачы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* ‖ *прым.* **чысці́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *Ч. агрэгат.*

**ЧЫТА́БЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *чытэльны. Ч. почырк.* ‖ *наз.* **чыта́бельнасць**, -і, *ж.*

**ЧЫТА́ЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* Пашыранасць, папулярнасць якога-н. твора сярод чытачоў.

**ЧЫТА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які з высокім майстэрствам чытае творы мастацкай літаратуры; артыст, дэкламатар. ‖ *ж.* **чыта́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **чыта́льніцкі**, -ая, -ае.

**ЧЫТА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Прызначаны для чытання, заняткаў з кнігамі, часопісамі. *Чытальная зала.*

**ЧЫТА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* Спецыяльнае памяшканне ў бібліятэцы для чытання ці заняткаў. *Купіць кнігі для чытальні.*

**ЧЫТА́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Кніжка, падручнік, дзе змешчаны невялікія тэксты, творы ці ўрыўкі з твораў для практыкавання ў чытанні, набыцця навыкаў чытання; хрэстаматыя. *Дзіцячая ч.*

**ЧЫТА́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -áецца; *незак.* **1.** Паддавацца чытанню; быць чытэльным. *Апавяданне чытаецца з цікавасцю. Надпіс цяжка чытаецца.* **2.** *безас.* Пра наяўнасць жадання ці магчымасці чытаць. *Мне сёння не чытаецца.* **3.** *перан.* Распазнавацца, угадвацца па якіх-н. прыкметах. *У вачах чытаўся сум.*

**ЧЫТА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; чы́таны; *незак.* **1.** *што* і *без дап.* Адрозніваць і спалучаць літары ў словы, успрымаць што-н. напісанае, надрукаванае літарамі; вымаўляць для тых, хто слухае, што-н. напісанае, надрукаванае. *Ч. па складах. Бегла ч. Ч. унукам казку.* **2.** *каго-што* і *без дап.* Знаёміцца са зместам чаго-н. напісанага або надрукаванага (з якім-н. творам, аўтарам і пад.); атрымліваць звесткі з кніг, часопісаў і інш. *Ч. аповесці Васіля Быкава. Ч. энцыклапедыю. Хлопчык многа чытае.* **3.** *што.* Разумець, разбірацца ў якіх-н. знаках, абазначэннях. *Ч. ноты. Ч. чарцяжы.* **4.** *што* і *без дап.* Па знешніх прыкметах распазнаваць, угадваць што-н. (перажыванні, думкі і пад.). *Ч. чужыя думкі. Ён чытаў у яе вачах страх.* **5.** *што.* Пераказваць які-н. тэкст на памяць. *Ч. на памяць байкі.* **6.** *што.* Выкладаць вусна перад аўдыторыяй. *Ч. лекцыі.* ◊ **Чытаць мараль (натацыі, павучанні)** — гаварыць з кім-н. строгім тонам, робячы вымову, дакараючы за што-н. ‖ *зак.* **прачыта́ць**, -áю, -áеш, -áе; -чы́таны. ‖ *наз.* **чыта́нне**, -я, *н.*, **чы́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (да 1—3 знач.) *і* **прачыта́нне**, -я, *н.* (да 1, 2, 5 і 6 знач.).

**ЧЫТА́Ч**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Той, хто чытае якія-н. творы, да каго звернуты творы пісьменнасці. *Апавяданне спадабалася чытачам.* **2.** Наведвальнік, абанент грамадскай бібліятэкі. *Бібліятэка праводзіць перарэгістрацыю чытачоў.* ‖ *ж.* **чыта́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак. ‖ *прым.* **чыта́цкі**, -ая, -ае.

**ЧЫ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** *гл.* чытаць. **2.** Чытанне ўголас чаго-н. **3.** Чытанне акцёрамі п'есы па ролях (від рэпетыцыі).

**ЧЫТЭ́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які лёгка чытаецца; выразны. *Ч. почырк.* ‖ *наз.* **чытэ́льнасць**, -і, *ж.*

**ЧЫХ**[1], -у, *м.* Тое, што і *чханне. Раптам на яго напаў чых.*

**ЧЫХ**[2], *гукаперайм.* Ужыв. для перадачы рэзкага адрывістага гуку пры чханні.

**ЧЫ́ХАЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.). Тое, што і *чханне.*

**ЧЫХІ́Р**, -у, *м.* Каўказскае чырвонае віно хатняга вырабу.

**ЧЭ́ЗЛЫ**, -ая, -ае. **1.** Які слаба расце, хілы (пра расліны). **2.** Хваравіты, слабы, кволы. ‖ *наз.* **чэ́злаcць**, -і, *ж.*

**ЧЭ́ЗНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; чэз, -зла; -ні; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Станавіцца чэзлым (у 1 знач.). *Ад засухі чэзла ўсё на полі.* **2.** Губляць здароўе, сілы. *Хлопчык чэз на вачах.* **3.** Станавіцца менш выразным, змяншацца, прападаць. *На світанні зоркі на небе чэзлі, станавіліся нябачнымі.*

**ЧЭК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Грашовы дакумент з распараджэннем укладчыка банка аб выдачы прад'яўніку сумы з бягучага рахунку ці пералічэнні грошай на іншы рахунак. *Ч. на прад'яўніка. Падпісаць ч.* **2.** Талон з касы з пацвярджэннем сумы, атрыманай за тавар, а таксама талон у касу ад прадаўца з указаннем сумы, якую патрэбна заплаціць. *Выбіць ч. у касе.* ‖ *прым.* **чэ́кавы**, -ая, -ае. *Чэкавая кніжка.*

**ЧЭК**[2], -а, *м.* Участак поля з пасевамі рысу, абгароджаны землянымі валікамі для затрымкі вады. *Рысавыя чэкі.* ‖ *прым.* **чэ́кавы**, -ая, -ае.

**ЧЭКА́**, *нескл., ж.* (з вялікай літары; гіст.). Скарочаная назва надзвычайнай камісіі — органа, створанага для барацьбы з контррэвалюцыяй, сабатажам і спекуляцыяй; існавала ў СССР у 1918—1922 гг. *Супрацоўнік Ч.*

**ЧЭКІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). Супрацоўнік Чэка. ‖ *ж.* **чэкі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **чэкі́сцкі**, -ая, -ае.

**ЧЭ́ЛЯДЗЬ**, -і, *ж., зб.* **1.** Насельніцтва феадальнай вотчыны Старажытнай Русі, якое знаходзілася ў разнастайных формах залежнасці ад феадалаў (гіст.). **2.** Дваровыя людзі, слугі (гіст.). **3.** *перан.* Людзі нізкага службовага становішча, якія імкнуцца выслужыцца перад высокапастаўленымі асобамі (пагард.).

**ЧЭ́МЕР**, -у, *м.* Тое, што і *чамярыца.* ‖ *прым.* **чэ́мерны**, -ая, -ае.

**ЧЭМПІЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Спартсмен (або спартыўная каманда) — пераможца ў спаборніцтвах у якім-н. відзе спорту на першынство горада, краіны, свету. *Ч. свету па шахматах. Ч. Еўропы па боксе.* **2.** Жывёліна, якая заняла першае месца на выстаўцы, у спаборніцтвах. ‖ *ж.* **чэмпіёнка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **чэмпіёнскі**, -ая, -ае.

**ЧЭМПІЯНА́Т**, -у, *М* -нáце, *м.* Спаборніцтва на першынство ў якім-н. відзе спорту або ў спартыўных гульнях. *Ч. свету па скачках у вышыню.*

**ЧЭ́ПІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тое, што і *бакас.* ‖ *прым.* **чэ́пікаў**, -кава, -кавы *і* **чэ́пікавы**, -ая, -ае.

**ЧЭ́ПЧЫК** *гл.* чапец.

**ЧЭ́РАВА**, -а, *н.* **1.** Бруха, жывот (разм.). **2.** Унутраная частка жывата чалавека, жывёлы. *Развіццё плода ў чэраве маці.*

**ЧЭРАВАВЯШЧА́ЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, які мае здольнасць чэраўвавяшчаць. ‖ *ж.* **чэрававяшча́льніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЧЭРАВАВЯШЧА́ЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак., што.* Гаварыць, не рухаючы губамі, ствараючы ўражанне, што гукі ідуць з жывата, з чэрава. ‖ *наз.* **чэрававяшча́нне**, -я, *н.*; *прым.* **чэрававяшча́льны**, -ая, -ае.

**ЧЭ́РАП**, -а, *мн.* чарапы́, чарапóў, *м.* **1.** Косці, якія ўтвараюць цвёрдую аснову галавы ў пазваночных. *Траўма чэрапа.* **2.** часцей *мн.* Абломак, аскепак разбітага глінянага, шклянога і пад. посуду. ‖ *прым.* **чарапны́**, -áя, -óе.

**ЧЭРВЕПАДО́БНЫ**, -ая, -ае. Падобны на чарвяка. *Ч. адростак.*

**ЧЭ́РВЕНЬ**, -я, *м.* Шосты месяц каляндарнага года. ‖ *прым.* **чэ́рвеньскі**, -ая, -ае.

**ЧЭ́РВІ** *гл.* чарвяк.

**ЧЭРНЬ**[1], -і, *ж., зб.* (уст., зневаж.). Просты народ, людзі, якія належалі да ніжэйшых непрывілеяваных слаёў грамадства.

**ЧЭРНЬ**[2], -і, *ж.* **1.** Гравіроўка металічных вырабаў, пераважна сярэбраных і за-

латых, штрыхі якой запаўняюцца спецыяльным чорным сплавам, а таксама вырабы, апрацаваныя такім чынам. **2.** Чорная вугальная фарба арганічнага паходжання (спец.). ‖ *прым.* **чэ́рневы**, -ая, -ае.

**ЧЭ́РПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак., што.* **1.** Даставаць, набіраць чым-н. што-н. вадкае або сыпкае. *Ч. ваду. Ч. каўшом пясок.* **2.** *перан.* Набываць, браць што-н. адкуль-н. (кніжн.). *Ч. веды. Ч. сілы.* ‖ *аднакр.* **чарпану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ (да 1 знач.). ‖ *наз.* **чэ́рпанне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **чарпа́льны**, -ая, -ае.

**ЧЭ́РСТВЫ**, -ая, -ае. **1.** Засохлы, цвёрды, сухі, нясвежы. *Ч. хлеб. Чэрствая булка.* **2.** *перан.* Нячулы, бяздушны. *Ч. чалавек. Чэрствая душа.* ‖ *наз.* **чэ́рствасць**, -і, *ж.*

**ЧЭ́САНКІ**, -нак. Мяккія і тонкія валёнкі з часанай воўны.

**ЧЭ́СНЫ**, -ая, -ае. **1.** Праўдзівы, прамы; добрасумленны. *Ч. чалавек. Ч. ўчынак.* **2.** Заснаваны на правілах чэсці, добрапрыстойнасці. *Чэснае жыццё. Чэснае імя.* **3.** Маральна чысты, цнатлівы. ◊ **Чэснае слова** — выраз, які ўпэўнівае ў праўдзівасці чаго-н. ‖ *наз.* **чэ́снасць**, -і, *ж.*

**ЧЭСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Вартыя павагі і гордасці маральныя якасці чалавека; яго адпаведныя прынцыпы. *Справа чэсці.* **2.** Добрая, незаплямленая рэпутацыя чалавека. *Бараніць ч. свайго імя.* **3.** Цнатлівасць (пра жанчын). **4.** Слава, павага, пашана. *Госці ведалі, каму аказваць ч. Ч. таму, хто самааддана працуе.* ◊ **Аддаць чэсць каму** — прывітаць ваеннага, прыклаўшы руку да галаўнога ўбору. **Пара і чэсць знаць** (разм.) — пара закончыць што-н.

**ЧЭ́ХІ**, -аў, *адз.* чэх, -а, *м.* Заходнеславянскі народ, які складае асноўнае насельніцтва Чэхіі. ‖ *ж.* **чэ́шка**, -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак. ‖ *прым.* **чэ́шскі**, -ая, -ае.

**ЧЭ́ШКА**[1] *гл.* чэхі.

**ЧЭ́ШКА**[2] *гл.* чэшкі.

**ЧЭ́ШКІ**, чэ́шак, *адз.* чэ́шка, -і, *ДМ* -шцы, *ж.* Спартыўныя тапачкі на лёгкай (звычайна на ласінай) падэшве для заняткаў гімнастыкай.

# — Ш —

**ША́БАС**, -у, *м.* **1.** Суботні адпачынак, суботняе свята, усталяванае яўрэйскай рэлігіяй. **2.** Тое, што і *шабаш.*

**ШАБАСАВА́ЦЬ**, -сую, -суеш, -суе; -суем, -суеце, -суюць; -суй; *незак.* Святкаваць шабас. *Яўрэі шабасавалі звычайна па корчмах.*

**ША́БАШ**, -у, *м.* У сярэдневяковых павер'ях: начное зборышча і разгул ведзьмаў.

**ШАБА́Ш**, -у́, *м.* (разм.). **1.** Заканчэнне работы, перапынак для адпачынку. *Гудок паклікаў на ш.* **2.** *у знач. вык.* Скончана, даволі. *Я за такое больш брацца не буду, ш.*

**ШАБА́ШНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм., неадабр.). Той, хто падраджаецца на прыватныя выгадныя заработкі. *Наняць шабашнікаў.* ‖ *прым.* **шаба́шніцкі**, -ая, -ае.

**ШАБА́ШНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Быць шабашнікам.

**ШАБА́ШЫЦЬ**, -шу, -шыш, -шыць; *незак.* (разм.). **1.** Канчаць або перапыняць работу. **2.** Зарабляць грошы, выконваючы выгадную работу, акрамя асноўнай (неадабр.). ‖ *зак.* **пашаба́шыць**, -шу, -шыш, -шыць.

**ША́БЕЛЬНЫ** *гл.* шабля.

**ШАБЛІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца фехтаваннем на шаблях. *Каманда шаблістаў.*

**ШАБЛО́Н**, -а *і* -у, *м.* **1.** -а, *мн.* -ы, -аў. Узор, па якім штампуюцца аднолькавыя вырабы. **2.** -у, *перан.* Агульнавядомы, збіты ўзор, штамп, які слепа пераймаюць. *Пазбягаць шаблону ў рабоце.* ‖ *прым.* **шабло́нны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШАБЛО́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* шаблон. **2.** *перан.* Які з'яўляецца шаблонам (у 2 знач.); збіты, банальны. *Шаблонныя фразы. Ш. падыход да справы.* ‖ *наз.* **шабло́ннасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ША́БЛЯ**, -і, *мн.* -і, -бель *і* -яў, *ж.* Халодная зброя з доўгім выгнутым клінком. *Сячы шаблямі ворага. Атрад у сто шабель* (г.зн. складаецца са ста кавалерыстаў). ‖ *памянш.* **ша́белька**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* ‖ *прым.* **ша́бельны**, -ая, -ае. *Шабельныя ножны.*

**ШАБУЛДЫ́Х**, *у знач. вык.* (разм.). Упаў, кінуўся ў ваду.

**ШАБУЛДЫ́ХНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* (разм.). З шумам, хутка ўпасці, уваліцца ў ваду, балота і пад.

**ШАБУЛДЫ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** *што.* Кінуць у ваду або выплеснуць ваду куды-н. *Ш. камень у ваду.* **2.** Тое, што і *шабулдыхнуцца.*

**ШАВЕ́Ц**, шаўца́, *мн.* шаўцы́, шаўцо́ў, *м.* Майстар па шыцці і рамонце абутку.

**ШАВЕ́ЦКІ**, -ая, -ае. Звязаны з шыццём і рамонтам абутку або які служыць для шыцця і рамонту абутку. *Шавецкая справа. Ш. варштат.*

**ШАВІЁТ**, -у, *М* -ёце, *м.* Мяккая, крыху варсістая шарсцяная тканіна для верхняй вопраткі. ‖ *прым.* **шавіётавы**, -ая, -ае.

**ШАВІНІ́ЗМ**, -у, *м.* Крайні нацыяналізм, які прапаведуе нацыянальную і расавую выключнасць і распальвае нацыянальную варожасць і нянавісць. ‖ *прым.* **шавіністы́чны**, -ая, -ае.

**ШАВІНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рэакцыянер, прыхільнік шавінізму. ‖ *ж.* **шавіні́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **шавіні́сцкі**, -ая, -ае.

**ШАВЯЛІ́ЦЦА**, -вялю́ся, -ве́лішся, -ве́ліцца; *незак.* **1.** Злёгку варушыцца. *Лісце шавеліцца.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Мітусліва перасоўвацца, знаходзіцца ў хаатычным руху. *Мурашкі шавеляцца ў муравейніку.* **3.** *перан.* Праяўляць актыўнасць, ажыццяўляцца. *Народ шавеліцца.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*), *перан.* Праяўляцца, прабуджацца (разм.). *Шавеляцца думкі. Шавялілася надзея.* **5.** *заг.* **шавялі́(це)ся.** Ужыв. пры пабуджэнні да дзеяння (разм.). *Хутчэй шавяліся!* ‖ *зак.* **пашавялі́цца**, -вялю́ся, -ве́лішся, -ве́ліцца. ‖ *аднакр.* **шавяльну́цца**, -вяльну́ся, -вяльне́шся, -вяльне́цца; -вяльнёмся, -вельняце́ся, -вяльну́цца; -вяльні́ся (да 1 знач.). ‖ *наз.* **шавялé́нне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ШАВЯЛІ́ЦЬ**, -вялю́, -ве́ліш, -ве́ліць; *незак.* **1.** *каго-што.* Злёгку прыводзіць у рух, кратаць. *Вецер шавяліў лісце.* **2.** *перан., каго-што.* Прымушаць да дзейнасці, працы, выводзіць са стану вяласці, абыякавасці да навакольнага. *Вас не шавялі, дык самі не здагадаецеся нічога зрабіць. Нішто не шавеліць яе душу.* **3.** *чым.* Злёгку рухаць. *Ш. пальцамі.* ◊ **Шавяліць мазгамі** — думаць. ‖ *зак.* **пашавялі́ць**, -вялю́, -ве́ліш, -ве́ліць. ‖ *аднакр.* **шавяльну́ць**, -вяльну́, -вяльне́ш, -вяльне́; -вяльнём, -вельняце́, -вяльну́ць; -вяльні́. ‖ *наз.* **шавяле́нне**, -я, *н.*

**ШАВЯЛЮ́РА**, -ы, *ж.* Пышныя, густыя валасы на галаве.

**ШАГ**, -у, *мн.* шагі́, -о́ў, *м.* **1.** Тое, што і *крок* (у 1 і 2 знач.). **2.** Пэўная адлегласць паміж суседнімі аднатыпнымі элементамі (у механізмах, дэталях машын; спец.). *Ш. разьбы.* ‖ *прым.* **ша́гавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ША́ГАМ**, *прысл.* Мерна пераступаючы нагамі, не бягом. *Конь ішоў ш. Ш. марш!* (каманда).

**ШАГІ́СЦІКА**, -і, *ДМ* -ціцы, *ж.* (неадабр.). Абучэнне маршыроўцы (на шкоду іншым, больш істотным ваенным заняткам).

**ША́ЙБА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* **1.** Падкладка пад гайку ці плешку шрубы ў выглядзе плоскага металічнага кольца. **2.** Невялікі цяжкі гумавы дыск, які ўжыв. пры гульні ў хакей. *Шайбу!* (вокліч хакейных балельшчыкаў, якія падахвочваюць ігракоў). ‖ *прым.* **ша́йбавы**, -ая, -ае.

**ША́ЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, ша́ек, *ж.* (разм.). Група людзей, аб'яднаных якой-н. злачыннай дзейнасцю. *Ш. бандытаў. Ш. жулікаў.*

**ШАЙТА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У мусульманскай міфалогіі: злы дух, сатана.

**ШАКА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Драпежная жывёліна сямейства сабачых, якая харчуецца пераважна мярцвячынай. ‖ *прым.* **шака́льны**, -ая, -ае *і* **шакалі́ны**, -ая, -ае.

**ШАКАЛА́Д**, -у, *М* -дзе, *м.* **1.** Кандытарскі выраб, які атрымліваюць шляхам перапрацоўкі зерня какавы з цукрам. *Плітка шакаладу.* **2.** Салодкі напітак на малацэ з парашку гэтага вырабу. *Выпіць кубак шакаладу.* ‖ *прым.* **шакала́дны**, -ая, -ае. *Ш. колер* (карычневы). *Шакаладнае дрэва* (вечназялёнае паўднёвае дрэва, з насення якога атрымліваюць какаву).

**ШАКАЛА́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* (разм.). Плітка шакаладу або шакаладная цукерка.

**ШАКАЛАДНА-...** Першая частка складаных слоў са знач.: колеру шакаладу, карычневы, з адценнем такога колеру, напр.: *шакаладна-буры, шакаладна-карычневы.*

**ШАКІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., каго (што).* Ставіць у няёмкае становішча, бянтэжыць парушэннем правіл прыстойнасці. *Мяне шакіруе яго фармальнасць да гэтага чалавека.*

**ШАЛ**, -у, *М* -е, *м.* **1.** Псіхічны стан чалавека, ахопленага вялікім гневам, узбуджэннем, шаленствам; раз'юшанасць. *Чалавек быў у шале і ні на што не зважаў.* **2.** *мн.* -ы, -аў. Гарэзлівасць, свавольства; гулянка. *Спыніце свае шалы. Ад чужога шалу ў галаве круціцца.*

**ШАЛАМІ́ЦЬ**, -ламлю́, -ло́міш, -ло́міць; *незак.* **1.** *каго (што).* Ашаламляць, рабіць моцнае ўражанне, прыводзіць у замяшанне. *Гэтага чалавека нічога не здзіўляе і не шаломіць.* **2.** *каго-што.* П'яніць, адурманьваць. *Гарэлка пачала ш. галаву.*

**ШАЛА́НДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ла́нд *і* -аў, *ж.* **1.** Невялікая несамаходная з мелкай пасадкай баржа для пагрузкі і разгрузкі суднаў, для перавозкі грунту з землечарпальных снарадаў. **2.** На Чорным моры: парусная пласкадонная рыбацкая лодка. ‖ *прым.* **шала́ндны**, -ая, -ае.

**ШАЛАПУ́Т**, -а, *М* -пу́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Легкадумны, пусты чалавек, баламут, свавольнік. ‖ *ж.* **шалапу́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ШАЛАПУ́ТНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Паводзіць сябе як шалапут.

**ШАЛАПУ́ТНЫ**, -ая, -ае (разм.). Легкадумны, дзівацкі, узбаламучаны. ‖ *наз.* **шалапу́тнасць**, -і, *ж.*

**ШАЛА́Ш**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Тое, што і *будан.* ‖ *прым.* **шала́шны**, -ая, -ае.

**ША́ЛЕВЫ** *гл.* шаль.

**ШАЛЕ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Шалёны чалавек, вар'ят.

**ШАЛЕ́НСТВА**, -а, *н.* **1.** Інфекцыйная хвароба, якая паражае цэнтральную нервовую сістэму; вадабоязь. **2.** *перан.* Крайняя ступень раздражнення, гневу. *Прыйсці ў ш.*

**ШАЛЕ́ЦЬ**, -е́ю, -е́еш, -е́е; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Захворваць шаленствам (пра жывёлу). **2.** Прыходзіць у крайняе раздражненне, гнеў. *Ш. ад злосці.* **3.** *перан.* Бурна праяўляць сваё дзеянне, сілу. *Шалее вецер.* **4.** Рабіць учынкі, пазбаўленыя разважлівасці, здаровага розуму. *Ш. ад захаплення.* ◊ **Шалець з раскошы** (разм.) — перабіраць, капрызіць ад перанасычанага ўсім, забяспечанага жыцця. ‖ *зак.* **ашале́ць**, -е́ю, -е́еш, -е́е (да 1 і 2 знач.).

**ШАЛЁВАЧНЫ** *гл.* шаляваць, шалёўка.

**ШАЛЁНЫ**, -ая, -ае. **1.** Хворы на шаленства (у 1 знач.). *Ш. воўк.* **2.** Які страціў разважлівасць, цвярозы розум. *Шалёная, што ты надумала рабіць!* **3.** *перан.* Вялікай сілы, напружаны; нястрыманы ў пачуццях. *Шалёная скорасць.* **4.** *перан.* Неўтаймоўны, люты. *Ш. характар.* **5.** *перан.* Выпадковы, бязладны. *Шалёная куля.* ◊ **Шалёныя грошы** — грошы, якія лёгка дастаюцца і таму расходуюцца неэканомна. **Шалёныя цэны** (разм.) — вельмі высокія.

**ШАЛЁЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** *гл.* шаляваць. **2.** *зб.* Тонкія дошкі, якія ідуць на абшыўку драўляных пабудоў, а таксама абшыўка з такіх дошак. *Пафарбаваць шалёўку.* **3.** *мн.* -і, -лёвак. Адна з такіх дошак. **4.** Накладныя планкі вакол акна, дзвярэй. ‖ *прым.* **шалёвачны**, -ая, -ае.

**ША́ЛІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Паласа з тканіны або шарсцяных нітак для захутвання шыі. *Цёплы ш.*

**ШАЛО́М**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *шлем* (у 1 знач.; уст.).

**ШАЛО́ПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Цяміць, разумець.

**ШАЛУДЗІ́ВЕЦЬ**, -ею, -ееш, -ее; *незак.* (разм.). Станавіцца шалудзівым. ‖ *зак.* **зашалудзі́вець**, -ею, -ееш, -ее.

**ШАЛУДЗІ́ВЫ**, -ая, -ае (разм.). Са струпамі, каростай на скуры. *Шалудзівае кацяня.* ‖ *наз.* **шалудзі́васць**, -і, *ж.*

**ШАЛУПА́ЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -па́ек, *ж.* Тое, што і *шалупіна. Бульба з шалупайкамі.*

**ШАЛУПІ́НА**, -ы, *ж.* **1.** Вонкавая мяккая прыродная абалонка (плода, бульбы і пад.); скурка. *Абдзерці шалупіну з бульбіны.* **2.** *мн.* -ы, -пі́н. Адходы пасля ачысткі пладоў, бульбы. *Збіраць шалупіны на корм свінням.*

**ШАЛУПІ́ННЕ**, -я, *н., зб.* **1.** Шалупіны; адходы пасля ачысткі пладоў, бульбы і пад. *Зварыць бульбу ў шалупінні. Ш. ад бульбы.* **2.** *перан., чаго* і *якое.* Што-н. непатрэбнае, лішняе, наноснае. *Адсейваць важнае ад выпадковага шалупіння.*

**ШАЛФЕ́Й**, -ю, *м.* Травяністая расліна сямейства губакветных з пахучымі кветкамі, адзін з відаў якой выкарыстоўваецца ў медыцыне для лекавых настояў, а таксама сам настой. *Паласкаць горла шалфеем.* ‖ *прым.* **шалфе́йны**, -ая, -ае.

**ШАЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Доўгая вузкая вязаная тканіна або тканая хустка. *Абкруціць шыю шалем.* ‖ *прым.* **ша́левы**, -ая, -ае. *Ш. каўнер.*

**ШАЛЬМАВА́ТЫ**, -ая, -ае (разм.). Схільны да шальмоўства, хітраваты. *Ш. чалавек. Ш. выгляд.* ‖ *наз.* **шальмава́тасць**, -і, *ж.*

**ШАЛЬМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *незак.* (разм.). **1.** *каго (што).* Ганьбаваць, знеслаўляць. *Ш. сумленнага чалавека.* **2.** Весці сябе несумленна ў якой-н. справе; хітрыць. *Ш. у картачнай гульні.* ‖ *зак.* **ашальмава́ць**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны. ‖ *наз.* **шальмава́нне**, -я, *н.*

**ШАЛЬМО́ЎСКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* шэльма. **2.** Уласцівы шэльме; махлярскі, хітры (разм.). *Ш. выгляд.*

**ШАЛЬМО́ЎСТВА**, -а, *н.* Махлярства, круцельства, махлярскі, хітры ўчынак. *Ш. ў гульні.*

**ША́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* **1.** Круглая і плоская талерка вагаў. **2.** *мн.* Вагі, якія складаюцца з такіх талерак. *Узважыць на шалях.*

**ШАЛЯВА́ЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *незак.* Абшываць шалёўкай (у 2 і 4 знач.). *Ш. хату. Ш. вокны.* ‖ *наз.* **шалёўка**, -і, *ДМ* -ўцы *і* **шалява́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **шалёвачны**, -ая, -ае.

**ШАЛЯНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ні́ц, *м.* і *ж.* **1.** Безразважны чалавек, дзівак. **2.** Дураслівы, свавольны чалавек.

**ШАЛЯСЦЕ́ЦЬ**, -ляшчу́, -лясці́ш, -лясці́ць; -лясці́м, -лесціце́, -лясця́ць; -лясці́; *незак.* Тое, што і *шапацець. Шалясціць лісце на дрэвах.* ‖ *наз.* **шалясце́нне**, -я, *н.*

**ШАМА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чараўнік, знахар у народаў, рэлігія якіх заснавана на кульце духаў, магіі. ‖ *ж.* **шама́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **шама́нскі**, -ая, -ае. *Шаманскія заклінанні.*

**ШАМАЦЕ́ЦЬ**, -мачу́, -маці́ш, -маці́ць; -маці́м; -маціце́, -маця́ць; -маці́; *незак.* Шапацець, шумець; утвараць лёгкі шум, шорах, кратаючы што-н. *Шамацела, ападаючы, лісце. Не шамаці паперай.* ‖ *наз.* **шамаце́нне**, -я, *н.*

**ШАМА́Я**, -і́, *ж.* Прамысловая рыба сямейства карпавых, якая водзіцца ў басейнах Чорнага, Азоўскага, Каспійскага і Аральскага мораў.

**ША́МКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Гаварыць невыразна, шапялявячы. *Ш. бяззубым ротам.* ‖ *наз.* **ша́мканне**, -я, *н.*

**ШАМКІ́**, -о́ў. Бразготкі, бомы. ‖ *прым.* **шамко́вы**, -ая, -ае.

**ШАМО́Т**, -у, *М* -мо́це, *м.* (спец.). Абпаленая да спякання гліна, а таксама вогнетрывалая цэгла з такой гліны. ‖ *прым.* **шамо́тавы**, -ая, -ае. *Шамотавая цэгла.*

**ШАМПА́НСКАЕ**, -ага, *н.* Пеністае вінаграднае віно, насычанае вуглякіслым газам.

**ШАМПІНЬЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ядомы шаравата-белы пласціністы грыб. ‖ *прым.* **шампіньённы**, -ая, -ае.

**ШАМПУ́НЬ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Мыльная пахучая вадкасць або крэм. *Ш. для валасоў. Аўтамабільны ш.*

**ШАМПУ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Завостраны металічны стрыжань для смажання

шашлыку на агні. ‖ *прым.* **шампу́рны**, -ая, -ае.

**ШАМЯ́КАЎ**, -ава. У выразе: **шамякаў суд** (разм.) — несправядлівы, прадузяты суд, разбор.

**ШАНАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** Глыбокая павага. *Адносіцца да каго-н. з шанаваннем. Маё ш.!* **2.** Выражэнне ўдзячнасці, гонару, увагі і пад. *Аказаць каму-н. ш.*

**ШАНАВА́ЦЦА**, -ну́юся, -ну́ешся, -ну́ецца; -ну́йся; *незак.* Быць асцярожным, берагчыся. *Трэба ш., не прастуджвацца.*

**ШАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *незак., каго-што.* **1.** Беражліва адносіцца, не расходаваць што-н. дарэмна. *Ш. сваё здароўе. Ш. грошы.* **2.** Адносіцца з пашанай, павагай да каго-, чаго-н., цаніць што-н., прытрымлівацца чаго-н. *Ш. народныя традыцыі. Ш. свой аўтарытэт. Ш. парадак.*

**ША́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* **1.** У Расіі ў 17—19 стст.: часовае палявое чатырохвугольнае ўмацаванне; акоп. **2.** Верагодная магчымасць ажыццяўлення чаго-н. *Шанцы на поспех. Не ўпусціць шанцу. Апошні ш.* ‖ *прым.* **ша́нцавы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Ш. інструмент.*

**ШАНО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Дастойны павагі, паважаны; які выклікае павагу. *Ш. ўзрост. Шаноўныя таварышы!* (пры звароце). ‖ *наз.* **шано́ўнасць**, -і, *ж.*

**ШАНС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *шанец* (у 2 знач.).

**ШАНСАНЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* **1.** Песня жартаўлівага, часта фрывольнага зместу, якая выконваецца ў кафэшантане. **2.** Спявачка, якая выконвае такія песні. ‖ *прым.* **шансане́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШАНТА́Ж**, -у́, *м.* Запалохванне каго-н. пагрозай выкрыцця або паведамлення якіх-н. непажаданых звестак з мэтай вымагання чаго-н. ‖ *прым.* **шанта́жны**, -ая, -ае.

**ШАНТАЖЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., каго (што).* Дамагацца чаго-н. у каго-н. шляхам шантажу.

**ШАНТАЖЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто займаецца шантажом. ‖ *ж.* **шантажы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **шантажы́сцкі**, -ая, -ае.

**ШАНТРАПА́**, -ы́, *ж.*, таксама *зб.* (разм., лаянк.). Пусты, нікчэмны чалавек. *Не вадзіся з усякай шантрапой.*

**ШАНЦ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *шанс.*

**ШАНЦАВА́ЦЬ**, -цу́е; *безас., незак., каму ў чым.* Пра ўдачу ў чым-н. *Яму шанцуе ў жыцці.* ‖ *зак.* **пашанцава́ць**, -цу́е. ‖ *наз.* **шанцава́нне**, -я, *н.*

**ША́НЦАВЫ** *гл.* шанец.

**ШАПАВА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Майстар, які вырабляе валеннем шэрсці капелюшы і іншыя рэчы.

**ШАПАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Звязаны з апрацоўкай шэрсці шляхам яе ўзбівання, разрыхлення.

**ШАПАВА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -лень *і* -льняў, *ж.* Майстэрня або памяшканне, дзе апрацоўваюць шэрсць для прадзення, валення.

**ШАПАЦЕ́ЦЬ**, -пачу́, -паці́ш, -паці́ць; -паці́м, -паціце́, -пацяць; -паці́; *незак.* Абзывацца шолахам, шумець чым-н. сухім або ўтвараць шолах, шум. *Шапаціць чарот на беразе возера. Ніва шапаціць спелымі каласамі.* ‖ *наз.* **шапаце́нне**, -я, *н.*

**ША́ПАЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* **1.** *гл.* шапка. **2.** Верхняя расшыраная частка чаго-н., што мае стрыжань, ножку і пад. *Ш. грыба.* ‖ *прым.* **ша́пачкавы**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ША́ПАЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Майстар, які шые шапкі. ‖ *ж.* **ша́пачніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ША́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* **1.** Галаўны ўбор, звычайна цёплы, мяккі. *Зімовая ш.* **2.** *перан.* Тое, што мае форму купала. *Шапкі хвой. Снегавыя шапкі дрэў.* **3.** Тое, што і *шапачка* (у 2 знач.). *Ш. баравіка.* **4.** Загаловак буйным шрыфтам, агульны для некалькіх артыкулаў у газеце, а таксама назва ўстановы-выдаўца, серыі і пад., якая змяшчаецца на тытульным лісце кнігі над загалоўкам (спец.). *Бюлетэнь выдаецца пад шапкай міністэрства.* **5.** Верхні брус над дзвярамі, акном для мацавання іх (спец.). ◊ **Закідаць шапкамі** — ужыв., калі выхваляюцца чым.-н. у знач.: лёгка адолець, перамагчы. **На разбор шапак** (прыйсці, паспець, з'явіцца і пад.; разм.) — к канцу, калі ўсе разыходзяцца, усё скончылася. **На злодзеі і шапка гарыць** — пра вінаватага ў чым-н. чалавека, які сам сябе выдае чым-н. **Па Сеньку і шапка** — пра таго, хто не заслугоўвае лепшага. **Па шапцы даць** *каму* (разм.) — выгнаць, зняць з работы. **Шапка валіцца** (разм.) — пра што-н. надта высокае. **Шапка расце на галаве** (разм.) — пра вялікі страх. ‖ *памянш.* **ша́пачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *зневаж.* **шапчы́на**, -ы, *мн.* -ы, -чы́н, *ж.* (да 1 знач.; разм.). ‖ *прым.* **ша́пачны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **ша́пкавы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *На шапачны разбор прыйсці, паспець* і пад. (тое, што і на разбор шапак). *Шапачнае знаёмства* (выпадковае; разм.).

**ШАПКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; *незак.* (разм.). **1.** Уніжальна прасіць каго-н. аб чым-н. **2.** Рабалепстваваць, нізкапаклоннічаць; вітацца, знімаючы шапку. ‖ *наз.* **шапкава́нне**, -я, *н.*

**ШАПТАЛА́**, -ы́, *ж.* Сушаныя на сонцы абрыкосы або персікі з костачкамі.

**ШАПТА́ЦЦА**, шапчу́ся, шэ́пчашся, шэ́пчацца; шапчы́ся; *незак.* Гаварыць паміж сабой шэптам. *Шапталіся ў кутку суседкі.* ‖ *наз.* **шапта́нне**, -я, *н.*

**ШАПТА́ЦЬ**, шапчу́, шэ́пчаш, шэ́пча; шапчы́; *незак.* Гаварыць шэптам. *Ш. на вуха каму-н. Ш. малітвы.* ‖ *аднакр.* **шапну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; ‖ *наз.* **шапта́нне**, -я, *н.*

**ШАПТУ́Н**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Чалавек, які шэпчацца. **2.** *перан.* Пляткар, распаўсюджвальнік чутак. **3.** Знахар, чараўнік (уст.). ‖ *ж.* **шапту́ха**, -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х.

**ШАПЛЯ́ВІЦЬ**, -ля́ўлю, -ля́віш, -ля́віць; *незак.* Тое, што і *шапляць.* ‖ *наз.* **шапля́ўленне**, -я, *н.*

**ШАПЛЯ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Які вымаўляе свісцячыя гукі (с, з) падобна да шыпячых (ш, ж). *Шапляваe дзіця.* **2.** Пра свісцячыя зычныя гукі: які вымаўляецца блізка да шыпячых. *Ш. гук. Шаплява* (прысл.) *вымаўляць «с».* ‖ *наз.* **шапля́васць**, -і, *ж.*

**ШАПЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак.* Гаварыць невыразна, з шапялявым адценнем. ‖ *наз.* **шапля́нне**, -я, *н.*

**ШАР**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** У матэматыцы: частка прасторы, абмежаваная сферай. *Радыус шара.* **2.** Прадмет такой формы. *Більярдны ш.* ○ **Зямны шар** — планета Зямля. **Паветраны шар** — 1) лятальны апарат, які паднімаецца ў паветра лёгкім газам, што запаўняе яго шарападобную абалонку; 2) шарападобная цацка ў выглядзе абалонкі, напоўненай паветрам або газам. ◊ **Хоць шаром пакаці** — нічога няма, зусім пуста. ‖ *памянш.* **ша́рык**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **шарав́ы**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**ШАРАБА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лёгкі, звычайна двухколавы экіпаж. ‖ *прым.* **шараба́нны**, -ая, -ае.

**ШАРАВА́РЫ**, -аў, **1.** Шырокія штаны асаблівага крою, якія засоўваюцца ў халявы. *Казацкія ш.* **2.** Род шырокіх штаноў на гумках унізе. *Лыжныя ш.* ‖ *прым.* **шарава́рны**, -ая, -ае.

**ШАРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *незак.* **1.** Церці сябе чым-н. (разм.). *Ш. вяхоткай.* **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Датыкаючыся, церці (у 1 знач.) адзін аб другога пры руху. *Галіны шаруюцца аб сцяну.* ‖ *наз.* **шарава́нне**, -я, *н.*

**ШАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Чысцячы, вадзіць чым-н. узад і ўперад па паверхні. *Ш. падлогу.* **2.** *што аб што, па чым* і *чым.* Церці (у 1 знач.) паверхняй аднаго прадмета аб паверхню другога. *Кола шаруе аб дошку. Дно лодкі шаравала аб зямлю.* ‖ *зак.* **вы́шараваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны (да 1 знач.) *і* **пашарава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны. ‖ *наз.* **шарава́нне**, -я, *н.*

**ШАРАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* шар. **2.** Які мае форму шара. *Шаравая маланка.* **3.** Які мае шарападобную будову, дэталі. *Ш. клапан.*

**ШАРА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ра́д, *ж.* Загадка, у якой загаданае слова падзяляецца на часткі, а кожная частка нагадвае самастойнае слова, якое трэба адгадваць, каб выйшла галоўнае слова. *Разыгрываць шарады.*

**ШАРА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). **1.** Шэры заяц. **2.** Кафтан з шэрага сукна. ‖

*памянш.* **шарачóк**, -чкá, *мн.* -чкí, -чкóў, *м.* (да 1 знач.).

**ШАРАПАДÓБНЫ**, -ая, -ае. Які мае выгляд шара. *Шарападобныя бактэрыі. Ш. грыб.* ‖ *наз.* **шарападóбнасць**, -і, *ж.*

**ШАРА́ХНУЦЦА**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся; *зак.* **1.** Ад спалоху, нечаканасці і пад. кінуцца ўбок, назад. *Людзі шарахнуліся назад. Конь шарахнуўся ўбок.* **2.** Моцна ўдарыцца аб што-н. (разм.). *Ш. плячом аб кант дзвярэй.* ‖ *незак.* **шара́хацца**, -аюся, -аешся, -аецца. ‖ *наз.* **шара́ханне**, -я, *н.*

**ШАРА́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** *каго-што* і *па чым, у што.* Моцна, з шумам ударыць. *Шарахнуць па галаве.* **2.** *што* і *чым.* Адрэзаць з сілай, хутка. *Ш. кусок булкі.* **3.** Тое, што і *шарахнуцца* (у 1 знач.). *Коні шарахнулі ўбок.* ‖ *незак.* **шара́хаць**, -аю, -аеш, -ае. ‖ *наз.* **шара́ханне**, -я, *н.*

**ШАРАХЦÉЦЬ**, -хчý, -хціш, -хціць; -хцім, -хціцé, -хцяць; -хці; *незак.* (разм.). Тое, што і *шархацець. Шарахціць сухі снег.* ‖ *наз.* **шарахцéнне**, -я, *н.*

**ШАРА́ЧАК**, -чка *і* -чку, *м.* **1.** -чку. Грубая фарбаваная тканіна дамашняга вырабу. **2.** -чка, *мн.* -чкі, -чкаў. Кафтан з такой тканіны. ‖ *прым.* **шарачкóвы**, -ая, -ае.

**ШАРАЧÓК**, -чкá *і* -чкý, *м.* **1.** -чкá, *гл.* шарак. **2.** Тое, што і *шарачак.* ‖ *прым.* **шарачкóвы**, -ая, -ае.

**ШАРАШÓВЫ** *гл.* шарош[2].

**ШАРБÉТ**, -у, *М* -бéце, *м.* **1.** Усходні фруктовы прахаладжальны напітак. **2.** Салодкая густая маса з фруктаў, кавы або шакаладу з цукрам, часта з арэхамі.

**ШАРГАНÝЦЬ** *гл.* шоргаць.

**ШАРГАЦÉЦЬ**, -гачý, -гаціш, -гаціць; -гацім, -гаціцé, -гацяць; -гаці; *незак.* Шапацець, шамацець, шумець. *Дрэва шаргаціць голлем па сцяне.* ‖ *наз.* **шаргацéнне**, -я, *н.*

**ШАРЖ**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -у. Сатырычная або гумарыстычная манера адлюстравання каго-, чаго-н. у падкрэслена скажоным, карыкатурным выглядзе. **2.** -а. Малюнак, партрэт, выкананы ў такой манеры. *Сяброўскі ш.* ‖ *прым.* **ша́ржавы**, -ая, -ае.

**ШАРЖЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *незак., каго-што* і *без дап.* Сатырычна ці гумарыстычна паказваць, адлюстроўваць каго-, што-н. у падкрэслена карыкатурным выглядзе. ‖ *наз.* **шаржы́раванне**, -я, *н.*

**ША́РКАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *чым* і *без дап.* Утвараць шорах, шум трэннем, закранаць што-н. з шумам. *Ш. мянташкай па касе. Шабля шаркала аб падлогу.* **2.** са словам «нагой» або без яго. Прыстаўляць адну нагу да другой, стукаючы абцасам аб абцас (пры паклоне, вітанні і пад.). ‖ *аднакр.* **ша́ркнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **ша́рканне**, -я, *н.*

**ШАРЛАТА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невук, які выдае сябе за знаўцу; падманшчык, махляр. ‖ *прым.* **шарлата́нскі**, -ая, -ае.

**ШАРЛАТА́НСТВА**, -а, *н.* Спосаб дзеяння шарлатана. *Выкрываць ш.*

**ШАРЛÓТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Страва з запечанага цеста або сухароў з яблыкамі.

**ШАРНÍР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рухомае злучэнне дзвюх частак механізма, якое дазваляе ім паварочвацца пад вуглом. *Лямпа на шарнірах. Як на шарнірах хто-н.* (неспакойна хуткі ў рухах; разм.). ‖ *прым.* **шарнíрны**, -ая, -ае.

**ШАРÓШ**[1], -рашý, *м.* Дробны, крохкі лёд у выглядзе кашападобнай масы, які ідзе перад ледаставам і ў час вясновага крыгаходу. *Ідзе ш. па рацэ.*

**ШАРÓШ**[2], -рашý, *м.* (спец.). Лес, які сплаўляецца па рацэ бярвеннем, не звязаным у плыт. ‖ *прым.* **шарашóвы**, -ая, -ае.

**ШАРПА́К**, -ý, *м.* Абледзянелая скарынка на паверхні снегу. *Ісці па шарпаку.*

**ШАРПАНÝЦЬ**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ні; *зак.* і *аднакр., каго-што* (разм.). Драпнуць, зачапіць. *Куля шарпанула байца па шчацэ.*

**ША́РПАЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -аецца; *незак.* (разм.). Рвацца (пра адзенне, абутак). ‖ *зак.* **пашáрпацца**, -аецца.

**ША́РПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Утвараць сухі шум, дакранаючыся да чаго-н. ці ад дотыку чаго-н., шуршэць. *Галіны дрэва шарпалі па даху. Пад нагамі шарпае ржышча.* **2.** *што.* З шумам кратаць, драпаць што-н. *Звер шарпаў гальку.* **3.** *што.* Драць. *Ш. адзенне.* ‖ *зак.* **паша́рпаць**, -аю, -аеш, -ае; -аны. ‖ *наз.* **ша́рпанне**, -я, *н.*

**ШАРСЦÍНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Асобны валасок шэрсці.

**ШАРСЦЯНЫ́** *гл.* шэрсць.

**ШАРХАЦÉЦЬ**, -хачý, -хаціш, -хаціць; -хацім, -хаціцé, -хацяць; -хаці; *незак.* (разм.). Утвараць шорхат, шум, шапацець. *Пад нагамі шархаціць кара.* ‖ *наз.* **шархацéнне**, -я, *н.*

**ШАРХÉБЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Вузкі рубанак з паўкруглым лязом для першаснай грубай апрацоўкі драўніны. ‖ *прым.* **шархéбельны**, -ая, -ае.

**ШАРША́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Тоўстая і доўгая іголка. *Сшываць пасак шаршаткай.* ‖ *прым.* **шарша́тачны**, -ая, -ае.

**ША́РЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** *гл.* шар. **2.** Састаўны элемент крыві. *Белыя і чырвоныя крывяныя шарыкі.*

**ША́РЫКАВЫ**, -ая, -ае. Забяспечаны прыстасаваннем у выглядзе шарыка, з шарыкамі. *Ш. падшыпнік. Шарыкавая ручка.*

**ШАРЫКАПАДШЫ́ПНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Шарыкавы падшыпнік. ‖ *прым.* **шарыкападшы́пнікавы**, -ая, -ае.

**ШАРЫЯ́Т**, -у, *М* -рыяце, *м.* Звод мусульманскіх рэлігійных, юрыдычных, бытавых правіл, заснаваных на Каране.

**ШАРЭ́НГА**, -і, *ДМ* -нзе, *мн.* -і, -рэ́нг *і* -аў, *ж.* Ваенны строй, у якім людзі стаяць адзін каля аднаго на адной лініі. *Выстраіцца ў дзве шарэнгі. Першая ш.* ‖ *прым.* **шарэ́нгавы**, -ая, -ае.

**ШАРЭ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -э́е; *незак.* **1.** Станавіцца шэрым, шарэйшым. **2.** Віднецца (пра што-н. шэрае). **3.** *безас.* Світаць або змяркацца. ‖ *зак.* **пашарэ́ць**, -э́е (да 1 і 3 знач.).

**ШАСÍ**, *нескл., н.* (спец.). **1.** Рама ці аснова розных машын, механізмаў і установак. **2.** Частка самалёта, прызначаная для руху яго па аэрадроме, для ўзлёту і пасадкі. *Падняць ш. Выпусціць ш.*

**ШАСНА́ЦЦАЦЬ**, -і, *ліч. кольк.* Лік і колькасць 16. ‖ *парадк.* **шасна́ццаты**, -ая, -ае.

**ША́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** Шуснуць, шмыгнуць куды-н. *Ш. у гушчар.* **2.** З шумам, хутка ўпасці, зляцець. *Дрэва шаснула на зямлю.* **3.** Моцна стукнуць па чым-н. або з энергіяй праявіцца ці хутка зрабіць што-н. *Ш. палкай па дошцы. Ш. нажом па мясе. Ш. талерку* (пабіць). *Шаснуў дождж. Шаснула куля над галовамі.* **4.** Утварыць шоргат, глухі шум. *Нешта шаснула ў кустах.*

**ШАСТАВÍК**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Спартсмен, які займаецца скачкамі з шастом.

**ШАСТАВЫ́** *гл.* шост.

**ШАСТА́К**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Сярэбраная манета ў сярэдневяковай Польшчы і Вялікім Княстве Літоўскім вартасцю ў шэсць грошаў. ‖ *прым.* **шаста́чны**, -ая, -ае.

**ША́СТАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Утвараць лёгкі шум, шоргат. *Шастае дождж па даху. Ш. сенам.* **2.** Біць з шумам (разм.). *Ш. дубцом па нагах.* **3.** Хадзіць, сноваць туды-сюды з мэтай што-н. выгледзець, украсці і пад. (разм.). *Ш. па лесе. Не трэба ш. дзе не след.* **4.** *што.* Рэзаць (разм.). *Ш. сала нажом.* ‖ *наз.* **ша́станне**, -я, *н.*

**ШАСТÓК** *гл.* шост.

**ШАСЦÉРНЕВЫ** *гл.* шасцярня[2].

**ШАСЦЕРЫКÓВЫ** *гл.* шасцярык.

**ШАСЦЁРА**, -цяры́х, -цяры́м, -цяры́мі, *ліч. зб.* **1.** З назоўнікамі мужчынскага і агульнага роду, што абазначаюць асоб, з разам узятымі асабовымі назоўнікамі мужчынскага і жаночага роду, з назоўнікамі мн. л., якія абазначаюць жывых істот абодвух полаў, з асабовымі займеннікамі мн. л. і без залежнага слова: колькасць шэсць. *Ш. хлопцаў. Ш. сірот. Нас было ш.: тры хлопцы і тры дзяўчыны. Ш. свіней. Тыя ш. ўжо пайшлі. Шасцярым прапаноўвалі.* **2.** З назоўнікамі, якія абазначаюць маладых істот: колькасць шэсць. *Ш. дзяцей. Ш. звяркоў.* **3.** звычайна *Н* і *В.* З множналікавымі назоўнікамі: шэсць прадметаў. *Ш. сутак. Ш. калёс. Ш. нажніц.* **4.** звычайна *Н* і *В.* З некаторымі назоўнікамі, якія абазначаюць прадметы, што існуюць або якія носяць у пары: шэсць пар. *Ш. шкарпэтак. Ш. туфель.*

**ШАСЦЁРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** Лічба 6. **2.** Назва чаго-н., што змяшчае шэсць адзінак, напр.: запрэжка ў шэсць коней, група з шасці чалавек,

шлюпка з трыма парамі вёсел, карта, дошчачка даміно з шасцю ачкамі і пад. **3.** Назва чаго-н., абазначанага лічбай 6 (разм.). *Тут спыняецца ш.* (пра аўтобус, тралейбус і пад.). **4.** Дэталь у малатарні; шасцярня². ‖ *прым.* **шасцёрачны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ШАСЦІ...** Першая частка складаных слоў са знач.: 1) які змяшчае шэсць якіх-н. адзінак, складаецца з шасці адзінак, напр.: *шасцібальны, шасцівалентны, шасцівёславы, шасцівугольны, шасцідзённы, шасцімесны, шасцімесячны, шасцірублёвы, шасціструнны;* 2) які мае адносіны да шасці, да шостага, напр.: *шасцігадзінны* (поезд), *шасцікласнік.*

**ШАСЦІГАДЗІ́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Працягласцю ў шэсць гадзін. *Ш. рабочы дзень.* **2.** Назначаны на шэсць гадзін. *Ш. цягнік.*

**ШАСЦІГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* шасцігоддзе. **2.** Які праіснаваў шэсць гадоў.

**ШАСЦІГО́ДДЗЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Тэрмін у шэсць гадоў. **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, што была шэсць гадоў назад. ‖ *прым.* **шасцігадо́вы**, -ая, -ае.

**ШАСЦІДЗЕСЯЦІГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* шасцідзесяцігоддзе. **2.** Які праіснаваў шэсцьдзясят гадоў.

**ШАСЦІДЗЕСЯЦІГО́ДДЗЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Тэрмін у шэсцьдзясят гадоў. **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, якая адбылася шэсцьдзясят гадоў таму назад. *Адсвяткаваць чыё-н. ш.* (шасцідзясяты дзень нараджэння). ‖ *прым.* **шасцідзесяцігадо́вы**, -ая, -ае.

**ШАСЦІДЗЯСЯ́ТНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прагрэсіўны грамадска-палітычны дзеяч 60-х гг. 19 ст. ў Расіі. ‖ *ж.* **шасцідзяся́тніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ШАСЦІДЗЯСЯ́ТЫ** *гл.* шэсцьдзясят.

**ШАСЦІКЛА́СНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань шостага класа. ‖ *ж.* **шасцікла́сніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ШАСЦІКРА́ТНЫ**, -ая, -ае. Тое, што і *шасціразовы.*

**ШАСЦІПА́ЛЬЦЫ**, -ая, -ае. З шасцю пальцамі.

**ШАСЦІРАЗО́ВЫ**, -ая, -ае. Які паўтараецца шэсць разоў, павялічаны ў шэсць разоў. *У шасціразовым памеры.*

**ШАСЦІСОТГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* шасцісотгоддзе. **2.** Які праіснаваў шэсцьсот гадоў.

**ШАСЦІСОТГО́ДДЗЕ**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* **1.** Тэрмін у шэсцьсот гадоў. **2.** *чаго.* Гадавіна падзеі, што адбылася шэсцьсот гадоў назад. *Ш. горада* (шэсцьсот гадоў з дня заснавання). ‖ *прым.* **шасцісотгадо́вы**, -ая, -ае.

**ШАСЦІСО́ТЫ** *гл.* шэсцьсот.

**ШАСЦІТЫ́СЯЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *Ліч. парадк.* да шэсць тысяч. **2.** Коштам у шэсць тысяч рублёў (разм.). **3.** Які складаецца з шасці тысяч адзінак. *Ш. атрад.*

**ШАСЦЯРНЯ́**¹, -і́, *мн.* -цёрні *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) -цярні́, -цёрань *і* -цёрняў, *ж.* Тое, што і *шасцярык* (у 2 знач.).

**ШАСЦЯРНЯ́**², -і́, *мн.* -цёрні *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) -цярні́, -цёрань і -цёрняў, *ж.* Зубчастае кола, якое перадае рух. ‖ *памянш.* **шасцяро́нька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* ‖ *прым.* **шасцяро́нны**, -ая, -ае *і* **шасцёрневы**, -ая, -ае.

**ШАСЦЯРЫ́К**, -церыка́, *мн.* -церыкі́, -церыко́ў, *м.* **1.** Старадаўняя руская мера (вагі, аб'ёму, ліку і пад.), якая змяшчае шэсць якіх-н. адзінак, а таксама прадмет такой вагі, аб'ёму і пад. **2.** Запрэжка ў шэсць коней. *Ехаць шасцерыком.* ‖ *прым.* **шасцерыко́вы**, -ая, -ае.

**ШАСЬ** (разм.). **1.** *выкл.* Ужыв. гукапераймальна для абазначэння шуму, падзення чаго-н. сыпкага, сухога. *Ш., ш., сыплецца зверху пясок.* **2.** *у знач. вык.* Ужыв. паводле знач. дзеясл. шаснуць. *Нехта ў дзверы ш. Ш. нажом па шнурку.*

**ШАСЭ́**, *нескл., н.* Тое, што і *шаша.* ‖ *прым.* **шасэ́йны**, -ая, -ае.

**ШАТА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Сатана, д'ябал.

**ШАТКАВА́ЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -кава́ны; *незак., што.* Рэзаць доўгімі тонкімі палоскамі (звычайна капусту). *Ш. капусту.* ‖ *зак.* **сшаткава́ць**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -кава́ны. ‖ *наз.* **шаткава́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **шаткава́льны**, -ая, -ае (спец.).

**ШАТКАЎНІ́ЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* (разм.). Тое, што і *шаткоўня.*

**ШАТКО́ЎНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Прылада для шаткавання (звычайна капусты). *Ручная ш.*

**ШАТЛА́НДКА**¹ *гл.* шатландцы.

**ШАТЛА́НДКА**², -і, *ДМ* -дцы, *ж.* Тканіна ў каляровыя клеткі.

**ШАТЛА́НДЦЫ**, -аў, *адз.* -дзец, -дца, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Шатландыі. ‖ *ж.* **шатла́ндка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак. ‖ *прым.* **шатла́ндскі**, -ая, -ае.

**ШАТРАВА́ЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -рава́ны; *незак., што.* Ачышчаць (зерне) ад абалонак перад тым, як малоць або пускаць на крупы. *Ш. збожжа.* ‖ *зак.* **сшатрава́ць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -рава́ны. ‖ *наз.* **шатрава́нне**, -я, *н. і* **шатро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (разм.). ‖ *прым.* **шатрава́льны**, -ая, -ае. *Шатравальная машына.*

**ШАТРО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* шацёр. **2.** Які мае форму шатра (у 2 знач.). *Ш. купал. Шатровая званіца.*

**ШАТУ́Н**¹, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (спец.). Рухомая дэталь, якая злучае поршань з валам рухавіка. ‖ *прым.* **шату́нны**, -ая, -ае.

**ШАТУ́Н**², -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Мядзведзь, які блукае зімой па лесе, а не спіць у берлагу. *Мядзведзь-ш.*

**ША́ТЫ**, -аў. **1.** Пышнае дарагое адзенне. *Апрануцца ў ш.* **2.** *перан.* Покрыва; тое, што пакрывае, укрывае каго-, што-н. *Снегавыя ш. Пад шатамі дрэў.*

**ШАТЭ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек з цёмна-русымі, каштанавымі валасамі. ‖ *ж.* **шатэ́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ШАЎКАВІ́НА**, -ы, *ж.* (спец.). Шаўковае валакно, нітка. ‖ *прым.* **шаўкавінны**, -ая, -ае.

**ШАЎКАВІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Нітка, валасок шоўку.

**ШАЎКАВІ́СТЫ**, -ая, -ае. Падобны на шоўк, гладкі, мяккі. *Шаўкавістая папера. Шаўкавістыя валасы.* ‖ *наз.* **шаўкаві́стасць**, -і, *ж.*

**ШАЎКАВІ́ЦА**, -ы, *ж.* Тое, што і *шаўкоўніца.*

**ШАЎКАВІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да здабывання шоўку ад тутавага шаўкапрада, а таксама да шаўкоўніцы (шаўкавіцы). *Ш. чарвяк* (вусень шаўкапрада). *Шаўкавічныя плантацыі.*

**ШАЎКАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па шаўкаводстве.

**ШАЎКАВО́ДСТВА**, -а, *н.* Развядзенне шаўкапрада як галіна сельскай гаспадаркі. ‖ *прым.* **шаўкаво́дны**, -ая, -ае *і* **шаўкаво́дчы**, -ая, -ае.

**ШАЎКАПРА́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Матыль, вусень якога ўе коканы, што ідуць на выраб шоўку. *Тутавы ш.*

**ШАЎКАТКА́ЦКІ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да ткання шоўку. *Шаўкаткацкая вытворчасць.*

**ШАЎКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* шоўк. **2.** *перан.* Лагодны, паслухмяны, добры (разм.).

**ШАЎКО́ЎНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Дрэва сямейства тутавых, лістамі якога кормяць вусеняў тутавага шаўкапрада; тутавае дрэва. ‖ *прым.* **шаўко́ўнічны**, -ая, -ае.

**ШАЎРО́**, *нескл., н.* Гатунак мяккай хромавай казінай скуры для абутку. ‖ *прым.* **шаўро́вы**, -ая, -ае.

**ШАЎРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Нашыўка з галуну ў выглядзе вугла на рукаве форменнага адзення. *Яфрэйтарскі ш. Залатыя шаўроны.* ‖ *прым.* **шаўро́нны**, -ая, -ае.

**ШАЎЧЫ́ХА**, -і, *ДМ* -чысе, *мн.* -і, -чы́х, *ж.* (разм.). Жонка шаўца.

**ША́ФА**, -ы, *мн.* -ы, шаф, *ж.* **1.** Прадмет мэблі ў выглядзе стаячай скрынкі з дзверцамі для захоўвання чаго-н. *Кніжная ш. Убудаваная ш.* (уробленая ў сцяну). *Незгаральная ш.* (металічная скрынка для захоўвання каштоўнасцей). **2.** Спецыяльнае прыстасаванне ў выглядзе скрынкі са створкай або дзверцамі для сушкі, выпечкі (у плітах) і пад. *Сушыльная ш. Выцяжная ш.* ‖ *памянш.* **ша́фка**, -і, *ДМ* -фцы, *мн.* -і, -фак, *ж.* ‖ *прым.* **ша́фавы**, -ая, -ае.

**ША́ФЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік вясельнага абраду, які выконвае даручэнні па распарадку і ў час вянчання трымае над галавой жаніха (нявесты) вянец. ‖ *прым.* **ша́ферскі**, -ая, -ае.

**ША́ФЕРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Старшая дружка нявесты ў вясельным абрадзе.

**ШАФЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вадзіцель аўтамабіля. ‖ *прым.* **шафёрскі**, -ая, -ае. *Шафёрскія правы.*

**ШАФРА́Н**, -у, *м.* **1.** Паўднёвая травяністая расліна сямейства касачовых, а таксама рыльцы яе кветак, высушаныя і расцёртыя на парашок, якія выкарыстоўваюцца як вострая прыправа і фарбавальнік. **2.** Гатунак яблыкаў. ‖ *прым.* **шафра́навы**, -ая, -ае *і* **шафра́нны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Шафранавы* або *шафранны колер* (аранжава-жоўты з карычневым адценнем).

**ШАХ**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Тытул манарха ў некаторых краінах Усходу, а таксама асоба, якая носіць гэты тытул. ‖ *прым.* **ша́хскі**, -ая, -ае.

**ШАХ**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* У шахматнай гульні: нападзенне якой-н. фігурай або пешкай на караля праціўніка, якое стварае яму пагрозу. *Аб'явіць ш. Ш. каралю.*

**ШАХІНША́Х**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урачысты тытул персідскага шаха (літаральна: цар цароў), а таксама асоба, якая насіла гэты тытул. ‖ *прым.* **шахінша́хскі**, -ая, -ае.

**ШАХІ́НЯ**, -і, *мн.* -і, -хі́нь, *ж.* Жонка шаха[1].

**ША́ХМАТЫ**, -мат. **1.** Гульня белымі і чорнымі фігурамі і пешкамі на дошцы ў 64 клеткі, якая заключаецца ў тым, што кожны з двух партнёраў імкнецца аб'явіць мат[1] каралю саперніка, а таксама адпаведны від спорту. *Гуляць у ш. Першынство свету па шахматах.* **2.** Фігуры і пешкі для такой гульні. *Дарожныя ш.* ‖ *прым.* **ша́хматны**, -ая, -ае. *Ш. гурток.*

**ШАХМАТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ігрок у шахматы. *Турнір шахматыстаў.* ‖ *ж.* **шахматы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **шахматы́сцкі**, -ая, -ае.

**ШАХРА́Й**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* (разм., пагард.). Чалавек, які любіць пажывіцца за кошт іншых; жулік. ‖ *ж.* **шахра́йка**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, -ра́ек. ‖ *прым.* **шахра́йскі**, -ая, -ае.

**ШАХРА́ЙСТВА**, -а, *н.* Учынкі шахрая; жульніцтва.

**ША́ХТА**, -ы, *М* -хце, *мн.* -ы, шахт *і* -аў, *ж.* **1.** Вертыкальная ці нахіленая горная выпрацоўка, якая мае непасрэдны выхад на паверхню (цяпер прынята называць шахтавым ствалом). *Спускацца ў шахту.* **2.** Горнапрамысловае прадпрыемства, якое вядзе падземную здабычу карысных выкапняў; месца здабычы іх. *Працаваць у шахтах.* **3.** Вертыкальная падоўжаная паласць у некаторых прамысловых канструкцыях (спец.). *Ліфтавая шахта.* ‖ *прым.* **ша́хтавы**, -ая, -ае. *Шахтавая печ.*

**ШАХЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Горнарабочы, які працуе ў шахце. ‖ *ж.* **шахцёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **шахцёрскі**, -ая, -ае.

**ШАЦЁР**, шатра́, *мн.* шатры́, шатро́ў, *м.* **1.** Лёгкае пераноснае жыллё з тканіны, скуры і пад., якое будуецца звычайна ў форме конуса. **2.** Высокі пірамідальны чатырохгранны ці васьміgranны дах (цэркваў, званіц, вежаў і пад.; спец.). ‖ *прым.* **шатро́вы**, -ая, -ае. *Ш. навес.*

**ША́ЦІЯ**, -і, *ж.* (разм., пагард.). Кампанія, група людзей. *Цягаецца тут усякая ш.*

**ШАША́**, -ы́, *ж.* Дарога, мошчаная шчэбенем, а таксама ўсякая дарога з цвёрдым пакрыццём. *Асфальтавая ш.* ‖ *прым.* **шашэ́йны**, -ая, -ае.

**ША́ШАЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Насякомае атрада жукоў, лічынкі якога псуюць скуры, футра, точаць дрэва і пад. *Ш. патачыў шафу.* ‖ *прым.* **ша́шалевы**, -ая, -ае.

**ША́ШАЧНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* **1.** Дошка з клеткамі для гульні ў шашкі, шахматы. **2.** Скрынка для шашак, шахмат.

**ША́ШКА**[1], -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* **1.** Брусок папярок распілаванага бервяна (спец.). **2.** Будаўнічы матэрыял у выглядзе колатых кавалкаў каменю пэўнай формы (спец.). **3.** Кубік прасаванага выбуховага рэчыва, якое ўжыв. пры выбуховых работах (спец.). *Тратылавая ш.* **4.** Вытачаны кружок для гульні ў шашкі. **5.** Двухкаляровы ўзор у выглядзе квадрацікаў, што чаргуюцца адзін з адным. *Паркет шашкамі. Вязанне ў шашку.* ○ **Дымавая шашка** (спец.) — каробка, напоўненая дымавой сумессю для стварэння дымавых завес. ‖ *прым.* **ша́шачны**, -ая, -ае.

**ША́ШКА**[2], -і, *ДМ* -шцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Ручная халодная зброя са злёгку загнутым клінком, якой сякуць або колюць.

**ША́ШКІ**, -шак. Гульня белымі і чорнымі кружкамі (шашкамі ў 4 знач.) на дошцы ў 64 (рускія шашкі) або ў 100 клетак (міжнародныя шашкі), якая заключаецца ў тым, што кожны з двух партнёраў імкнецца знішчыць шашкі саперніка або пазбавіць яго магчымасці рабіць хады. *Гуляць у ш.* ‖ *прым.* **ша́шачны**, -ая, -ае. *Ш. столік.*

**ШАШЛЫ́К**, -у́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Страва з кавалачкаў мяса (бараніны, ялавічыны, свініны і інш.), нанізаных на металічны стрыжань (шампур) і засмажаных над вуглямі. ‖ *прым.* **шашлы́чны**, -ая, -ае.

**ШАШЛЫ́ЧНАЯ**, -ай, *мн.* -ыя, -ых, *ж.* Сталовая, дзе гатуюць шашлыкі.

**ША́ШНІ**, -яў (разм., неадабр.). **1.** Інтрыгі, падкопы. *Патаемныя ш. з бандытамі.* **2.** Любоўныя інтрыгі, сувязі. *Завязала ш. з калегам па рабоце.*

**ШАШО́К**, -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.* Тое, што і *тхор.* ‖ *прым.* **шашко́вы**, -ая, -ае.

**ШАШЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ігрок у шашкі. ‖ *ж.* **шашы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **шашы́сцкі**, -ая, -ае.

**ШАШЭ́ЙНЫ** *гл.* шаша.

**ШВА́БРА**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Мятла з мачалы, вяровак і пад., уробленых у калодку. ‖ *прым.* **шва́бравы**, -ая, -ае.

**ШВА́ГЕР**, -гра, *мн.* -гры, -граў, *м.* Брат жонкі або муж сястры ці швагеркі.

**ШВАГЕ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Жончына сястра.

**ШВА́ЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, шва́ек, *ж.* Плоскае шыла, якім колюць свіней. ‖ *прым.* **шва́ечны**, -ая, -ае.

**ШВА́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* (уст.). Кравецкая майстэрня.

**ШВАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., што* (спец.). Прымацоўваць марское судна швартовамі да прычальных прыстасаванняў. ‖ *звар.* **швартава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся. ‖ *зак.* **прышвартава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны, **адшвартава́ць**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *звар.* **прышвартава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся *і* **адшвартава́цца**, -ту́юся, -ту́ешся, -ту́ецца; -ту́йся. ‖ *наз.* **шварто́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **швартава́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **шварто́ўны**, -ая, -ае. *Швартоўнае прыстасаванне.*

**ШВАРТО́ВЫ**, -ая, -ае (спец.). Які мае адносіны да швартова. *Швартовае прыстасаванне.*

**ШВАРТО́Ў**, -то́ва, *мн.* -то́вы, -то́ваў, *м.* (спец.). Канат, трос, якім прывязваецца марское судна да прычальных прыстасаванняў. *Аддаваць швартовы* (адвязваць судна ад прычала).

**ШВАХ**, *у знач. вык.* (разм.). Дрэнна, кепска. *Наша справа ш.*

**ШВА́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* Жанчына, якая прафесійна займаецца шыццём.

**ШВЕ́ДЫ**, -аў, *адз.* швед, -а, *М* -дзе, *м.* Народ, які складае асноўнае насельніцтва Швецыі. ‖ *ж.* **шве́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак. ‖ *прым.* **шве́дскі**, -ая, -ае.

**ШВЕ́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Работнік швейнай прамысловасці. ‖ *ж.* **шве́йніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ШВЕ́ЙНЫ** *гл.* шыць.

**ШВЕЙЦА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Вартаўнік ля знадворных дзвярэй у пад'ездах устаноў, рэстаранаў, гасцініц, жылых памяшканняў. ‖ *прым.* **швейца́рскі**, -ая, -ае.

**ШВЕЙЦА́РСКАЯ**, -ай, *мн.* -ія, -іх, *ж.* Памяшканне для швейцара.

**ШВЕЙЦА́РЦЫ**, -аў, *адз.* швейца́рац, -рца, *м.* Насельніцтва Швейцарыі. ‖ *ж.* **швейца́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. ‖ *прым.* **швейца́рскі**, -ая, -ае.

**ШВЕРТБО́Т**, -а, *М* -бо́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паруснае аднамачтавае спартыўнае судна з высоўным кілем.

**ШВІ́ВА**, -а, *н.* (разм.). Тое, што шыецца. *Маці сядзіць са швівам у руках.*

**ШВІ́ЦКІ**, -ая, -ае. У выразе: **швіцкая парода** — парода буйной рагатай жывёлы [ад назвы кантона Швіц у Швейцарыі, дзе ўпершыню выведзена гэта парода].

**ШВО**, -а, *мн.* -ы, -оў, *н.* **1.** Месца злучэння сшытых кавалкаў тканіны, скуры. *Парвацца ў шве. Накладаць швы* (сшываць, змацоўваць краі раны, парэзу). **2.** Месца злучэння частак чаго-н. (спец.). *Швы чэрапа. Ш. цаглянай кладкі.* **3.** Спосаб шыцця, вышыўкі. *Няроўнае ш. Сцяблістае ш.* ◊ **Рукі па швах** — пра рукі, выцягнутыя ўніз удоўж тулава. **Трашчыць па ўсіх швах** — прыходзіць у поўны заняпад, развальвацца; разм.). ‖ *прым.* **шыўны́**, -а́я,

-óе (да 1 знач.; спец.). *Ш. матэрыял* (у хірургіі).

**ШВО́РАН**, -рна, *мн.* -рны, -рнаў, *м.* Стрыжань у паваротным злучэнні пярэдняй часткі кузава павозкі, які забяспечвае павароты на хаду. ‖ *прым.* **шво́рнавы**, -ая, -ае.

**ШВЭ́НДАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм., неадабр.). Хадзіць без справы, занятку, сноўдацца. *Швэндаўся дзень невядома дзе.* ‖ *наз.* **швэ́нданне**, -я, *н.*

**ШКАДА́**. **1.** *безас., у знач. вык., каго-чаго* або *з інф.* Пра пачуццё жалю, спагады і пад. да каго-, чаго-н. *Ш. хворай сястры. Ш. глядзець на яго.* **2.** *безас., у знач. вык., чаго* або *з інф.* Пра нежаданне аддаць, страціць і пад. што-н. *Мне нічога не ш. для вас. Гадка з'есці і ш. кінуць* (прымаўка). **3.** *безас., у знач. вык.,* са злучнікамі «што», «калі» ці без іх. Даводзіцца пашкадаваць. *Ш., што яны не прыедуць.* **4.** *у знач. пабочн. сл.* На жаль. *З'ездзіць бы, ды, ш., часу няма!*

**ШКАДАВА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *аб кім-чым.* Пачуццё смутку аб чым-н. страчаным, непапраўным, засмучэнне з прычыны чаго-н. непажаданага. *Ш. аб незваротнай страце.* **2.** *да каго-чаго.* Спагада, спачуванне. *Адчуваць ш. да каго-н. Зірнуць на каго-н. са шкадаваннем.*

**ШКАДАВА́ЦЬ**, -дýю, -дýеш, -дýе; -дýй; *незак.* **1.** *каго (што).* Адчуваць жаль, спагаду да каго-н. *Ш. бежанцаў.* **2.** *каго-што* і *чаго.* Берагчы, ашчаджаць, скупіцца, не даваць. *Людзі не шкадавалі жыцця для абароны айчыны. Ш. грошы* або *грошай.* **3.** *аб чым* і *з дадан.* Смуткаваць, бедаваць з прычыны чаго-н. *Ш. аб зробленых памылках. Шкадую, што не пайшоў у тэатр.* **4.** *з інф.* Не адважвацца што-н. зрабіць. *Я шкадую зразаць гэта дрэва.* ‖ *зак.* **пашкадава́ць**, -дýю, -дýеш, -дýе; -дýй; -дава́ны.

**ШКАДЛІ́ВЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Які прыносіць шкоду, шкодны. *Шкадлівае паветра.* **2.** Які часта робіць шкоду; гарэзлівы, памаўзлівы. *Ш. кот.* ‖ *наз.* **шкадлі́васць**, -і, *ж.*

**ШКАДЛІ́ВЫ**[2], -ая, -ае. Які шкадуе, выказвае спагаду, жаль. *Ш. голас.* ‖ *наз.* **шкадлі́васць**, -і, *ж.*

**ШКАЛА́**, -ы́, *мн.* шка́лы *і (з ліч. 2, 3, 4)* шкалы́, шкал, *ж.* **1.** Лінейка або табліца з дзяленнямі ў розных прыборах. *Ш. прыёмніка.* **2.** Сістэма лікаў, велічынь ва ўзыходным і сыходным парадку (спец.). *Ш. заработнай платы.* ‖ *прым.* **шка́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.).

**ШКАЛЯ́РСТВА**, -а, *н.* (разм., неадабр.). Несамастойны, начотніцкі падыход да чаго-н. ‖ *прым.* **шкаля́рскі**, -ая, -ае.

**ШКА́НЦЫ**, -аў (спец.). Месца ў сярэдняй частцы верхняй палубы ваенных караблёў, дзе адбываюцца агляды, цырымоніі і пад. *Каманда выстраена на шканцах.* ‖ *прым.* **шка́нцавы**, -ая, -ае. *Ш. журнал* (суднавы журнал).

**ШКАРЛУ́ПІНА**, -ы, *мн.* -ы, -пін, *ж.* **1.** Цвёрдая абалонка чаго-н. (яйца, арэха і інш.). **2.** *перан.* Тое, што ізалюе, абмяжоўвае магчымасць далейшага дзеяння, развіцця. *Замыкацца ў сваёй шкарлупіне.*

**ШКАРЛЯТЫ́НА**, -ы, *ж.* Заразная хвароба, пераважна ў дзяцей, якая суправаджаецца болем у горле, сыпам і далейшым лушчэннем скуры. ‖ *прым.* **шкарляты́навы**, -ая, -ае *і* **шкарлятыно́зны**, -ая, -ае. *Шкарлятынавая эпідэмія. Шкарлятынозная высыпка.*

**ШКАРПЭ́ТКІ**, -так, *адз.* шкарпэ́тка, -і, *ДМ* -тцы, *ж.* Кароткія панчохі, якія не даходзяць да калена. ‖ *прым.* **шкарпэ́тачны**, -ая, -ае. *Панчошна-шкарпэтачныя вырабы.*

**ШКАТУ́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Невялікая скрыначка з вечкам для захоўвання дробных рэчаў. ○ **Музычная шкатулка** — механічны завадны музычны інструмент у выглядзе скрыначкі, з якой гучыць якая-н. мелодыя. ‖ *прым.* **шкату́лачны**, -ая, -ае.

**ШКВАЛ**, -у, *м.* **1.** Раптоўны моцны парыў ветру, які суправаджаецца звычайна навальнічным ліўнем. *Наляцеў ш. Ш. смеху* (перан.). **2.** *перан.* Моцная масіраваная стральба. *Ш. агню.* ‖ *прым.* **шква́льны**, -ая, -ае *і* **шква́лісты**, -ая, -ае. *Шквальны (шквалісты) вецер. Шквальны агонь кулямётаў* (моцны, масіраваны).

**ШКЕ́ЛЬЦА**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* **1.** *гл.* шкло. **2.** Асколак або кавалак шкла. Шкельцы ад пабітых акон. **3.** *перан.* Пра тое, што па сваіх уласцівасцях нагадвае шкло. *Шкельцы лужын.* **4.** *мн.* Акуляры або пенснэ (разм.). *Надзець шкельцы.*

**ШКІЛЕ́Т**, -а, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сукупнасць касцей, якія ствараюць цвёрдую аснову цела чалавека і жывёл. *Ш. чалавека. На яго страшна глянуць: ш.* (пра вельмі худога чалавека). **2.** *перан.* Аснова, каркас. *Ш. будынка.* ‖ *прым.* **шкіле́тны**, -ая, -ае.

**ШКІ́ПЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Капітан несамаходнага карабля. **2.** Капітан камерцыйнага судна (уст.). **3.** На марскіх суднах: асоба, адказная за маёмасць на палубе. ‖ *прым.* **шкі́перскі**, -ая, -ае.

**ШКІПІНА́Р**, -у, *м.* Вадкасць з едкім пахам, якая здабываецца перагонкай смалы хвойных дрэў. ‖ *прым.* **шкіпіна́рны**, -ая, -ае.

**ШКІ́РКА**, -і, *ж.* У выразе: **узяць (схапіць) за шкірку** *каго* (разм.) — узяць за частку адзення, якая прымыкае да шыі, за каўнер, за заднюю частку шыі; таксама перан.: прымяніць насілле, прымус.

**ШКІЎ**, шківа, *мн.* шківы, шківаў, *м.* (спец.). Кола з шырокім абадом, дэталь рамённай або канатнай перадачы руху. ‖ *прым.* **шкі́ўны**, -ая, -ае.

**ШКЛА...** (*гл.* **шкло...**). Першая частка складаных слоў; ужыв. замест «шкло...», калі націск у другой частцы слова падае на першы склад, напр.: *шклавар, шклавата, шклавырабы, шкланітка, шклапластык, шклапосуд, шкларэз, шклатара.*

**ШКЛАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Друкаванне на шклографе. ‖ *прым.* **шклографі́чны**, -ая, -ае.

**ШКЛО**, -а, *н.* **1.** Празрысты матэрыял, які атрымліваецца шляхам плаўлення кварцавага пяску. **2.** таксама *зб.* Тонкі ліст ці іншай формы выраб з гэтага матэрыялу. *Аконнае ш. Лямпавае ш. Выстаўка шкла* (зб.). ‖ *памянш.* **шке́льца**, -а (да 2 знач.) *і* **шкле́чка**, -а, *н.* (да 2 знач.; разм.). ‖ *прым.* **шкляны́**, -áе, -óе. *Шкляная маса. Ш. посуд. Шкляныя дзверы. Ш. завод.*

**ШКЛО...** (а таксама **шкла...**). Першая частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да шкла, які ўтрымлівае ў сабе шкло, напр.: *шклобетонны, шкловытворчасць, шкложалезабетон, шклокераміка, шклорубероід, шклотканіна, шклоцэмент;* 2) зроблены са шкла, напр.: *шкловалакно, шкломазаіка, шклотавары.*

**ШКЛОВЫДЗІМА́ЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, які шляхам выдзімання вырабляе розныя шкляныя рэчы.

**ШКЛО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Апарат для друкавання — змочанае клейкай вадкасцю матавае шкло, на якім робіцца адбітак арыгінала.

**ШКЛОГРАФАВА́ЦЬ**, -фýю, -фýеш, -фýе; -фýй; -фава́ны; *зак.* і *незак., што.* Аддрукаваць (друкаваць) на шклографе.

**ШКЛЯНЕ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -éе; *незак.* Застываючы, станавіцца падобным на шкло. *Вада ў сажалцы шклянее. Вочы паступова шклянелі* (перан.: станавіліся нерухомымі, застылымі). ‖ *зак.* **ашкляне́ць**, -éе.

**ШКЛЯ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Шкляная цыліндрычная пасудзіна без ручкі, прызначаная для піцця. *Гранёная ш. Выпіць шклянку кавы.* ‖ *прым.* **шкля́начны**, -ая, -ае.

**ШКЛЯНЫ́**, -áя, -óе. **1.** *гл.* шкло. **2.** *перан.* Нерухомы, пусты (*гл.* погляд).

**ШКЛЯР**, -á, *мн.* -ы́, -óў, *м.* **1.** Рабочы, які ўстаўляе аконнае шкло ў рамы. **2.** Работнік шкляной прамысловасці (разм.).

**ШКЛЯ́РУС**, -у, *м.* Род буйнога бісеру ў выглядзе рознакаляровых кароткіх трубачак са шкла, якія нанізваюцца на нітку для ўпрыгажэння. ‖ *прым.* **шкля́русны**, -ая, -ае.

**ШКО́ДА**[1], -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** Пашкоджанне, урон, страта. *Зрабіць шкоду гаспадарцы. Без шкоды для справы. Зрабіць на шкоду каму-н.* **2.** Страта, прычыненая жывёлай, патрава і месца на зямлі, дзе жывёла можа зрабіць патраву. *Цяля нарабіла ў агародзе шкоды.*

**ШКО́ДА**[2], *безас., у знач. вык., у знач. пабочн. сл.* Тое, што і *шкада. Мне ш. траціць часу. Ш., што я туды не з'ездзіў. Мне трапіць туды, ш., не выпадае.*

**ШКО́ДЗІЦЬ**, -джу, -дзіш, -дзіць; *незак.* Прыносіць шкоду[1] (у 1 знач.). *Алкаголь шкодзіць здароўю.* ◊ **Не шкодзіць** або **не шкодзіла б** *каму з інф.* — неабходна, нядрэнна б зрабіць што-н. *Не шкодзіла б нам*

*з'ездзіць на мора.* ‖ *зак.* **нашкóдзіць**, -джу, -дзіш, -дзіць.

**ШКÓДНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* шкодны. **2.** Шкодныя для здароўя ўмовы вытворчасці (афіц.). *Ільготы за ш.*

**ШКÓДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Насякомае, якое прыносіць шкоду раслінам. *Шкоднікі злакаў.* **2.** Чалавек, які прычыняе шкоду, зло народу, дзяржаве, а таксама ўвогуле прыносіць шкоду каму-н. ‖ *прым.* **шкóдніцкі**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ШКÓДНІЦТВА**, -а, *н.* Злачынная, шкодніцкая дзейнасць.

**ШКÓДНЫ**, -ая, -ае. Які прыносіць шкоду[1] (у 1 знач.); небяспечны. *Ш. для здароўя клімат. Курыць шкодна* (безас., у знач. вык.). *Шкодная тэорыя.* ‖ *наз.* **шкóднасць**, -і, *ж.*

**ШКÓЛА**, -ы, *мн.* -ы, школ, *ж.* **1.** Навучальная ўстанова (пераважна пра пачатковую або сярэднюю). *Хадзіць у школу. Будынак школы. Вясковая ш. Рамесная ш. Ш.-інтэрнат. Вышэйшая ш.* (пра вышэйшыя навучальныя ўстановы). **2.** *перан.* Вывучка, дасягнуты ў чым-н. вопыт, а таксама тое, што дае такую вывучку, вопыт. *Ш. жыцця. Прайсці армейскую школу.* **3.** Напрамак у галіне навукі, майстэрства і пад. *Жыновічаўская ш. цымбалістаў. Стварыць сваю школу ў навуцы.* ‖ *прым.* **шкóльны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШКÓЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Вучань пачатковай ці сярэдняй школы. ‖ *ж.* **шкóльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **шкóльніцкі**, -ая, -ае.

**ШКÓЛЬНІЦКІ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* школьнік. **2.** Уласцівы школьніку, несур'ёзны, няварты дарослага чалавека. *Школьніцкая гарэзлівасць.* ‖ *наз.* **шкóльніцтва**, -а, *н.*

**ШКÓЛЬНІЧАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). Паводзіць сябе па-школьніцку. ‖ *наз.* **шкóльнічанне**, -я, *н.*

**ШКУМÁТ**, -á, *М* -мацé, *мн.* -ы́, -óў, *м.* (разм.). Абрывак, абрэзак (тканіны, скуры і пад.). *Ш. матэрыі.* ‖ *прым.* **шкумáтны**, -ая, -ае.

**ШКУМАТÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; -áны; *незак., каго-што.* Матляннем, тузаннем у розныя бакі рваць, імкнуцца парваць на часткі. *Сабака шкуматаў прасціну.* ‖ *зак.* **пашкуматáць**, -áю, -áеш, -áе; -áны. ‖ *аднакр.* **шкуматнýць**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ні́. ‖ *наз.* **шкуматáнне**, -я, *н.*

**ШКÝРА**, -ы, *мн.* -ы, шкур, *ж.* **1.** Скура з поўсцю, знешняе покрыва цела жывёл; скура з поўсцю, знятая з забітай жывёлы. *На жывым мядзведзі шкуры не купляй* (прыказка). *З аднаго вала дзвюх шкур не дзяруць* (прыказка). *Ласіная ш.* **2.** Пра подлага, нізкага чалавека, вымагальніка і шкурніка (разм., пагард.). ◊ **Быць у** *чыёй-н.* **шкуры** — быць у чым-н. становішчы, звычайна дрэнным, незайздросным. **Воўк у авечай шкуры** — пра злога, жорсткага чалавека, які прыкінуўся лагодным. **На сваёй шкуры зведаць, адчуць** *што-н.* — зведаць што-н. дрэннае на сабе, на сваім вопыце. **Ратаваць сваю шкуру** — ратаваць сябе, не думаючы пра іншых. **Шкуру (дзве шкуры, сем шкур** і пад.) **драць, лупіць** *з каго-н.* — абіраць, жорстка эксплуатаваць каго-н. **Шкуру спусціць** *з каго-н.* — моцна збіць, караючы, а таксама наогул жорстка абысціся з кім-н., пакараць каго-н. ‖ *памянш.* **шкýрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **шкýрны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШКУРАДЗЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Рабочы бойні, які здзірае шкуры з забітых жывёл. **2.** *перан.* Пра скнарнага гандляра, спекулянта і пад.; жывадзёр.

**ШКÝРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* **1.** *гл.* шкура. **2.** Папера ці тканіна з нанесеным на яе слоем абразіўнага матэрыялу, якая прымяняецца для шліфавання, зачысткі вырабаў.

**ШКÝРНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм., пагард.). Пра чалавека, які клапоціцца толькі пра асабістую выгаду, не думаючы пра іншых. ‖ *ж.* **шкýрніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц. ‖ *прым.* **шкýрніцкі**, -ая, -ае.

**ШКÝРНІЦТВА**, -а, *н.* Паводзіны шкурніка. ‖ *прым.* **шкýрніцкі**, -ая, -ае.

**ШКÝРНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* шкура. **2.** Заснаваны на імкненні толькі да асабістых выгад, інтарэсаў на шкоду інтарэсам грамадства, своекарыслівы (разм., пагард.). *Шкурныя намеры.*

**ШЛАГБÁУМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пад'ёмная ці рухомая перакладзіна для адкрывання і закрывання шляху на пераездах, заставах.

**ШЛАК**, -у, *м.* Застылыя рэшткі пасля выплаўкі металу з руды. ‖ *прым.* **шлáкавы**, -ая, -ае.

**ШЛАКАБЕТÓН**, -у, *м.* Бетон з сумесі цэменту, пяску і шлаку. ‖ *прым.* **шлакабетóнны**, -ая, -ае.

**ШЛАНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Гнуткая труба для адводу, усмоктвання, пералівання і пад. вадкасцей, газу, сыпучых рэчываў. *Ссыпаць збожжа цераз ш. Пажарны ш.* ‖ *прым.* **шлáнгавы**, -ая, -ае.

**ШЛÉЙКА**, -і, *ДМ* -йцы, *мн.* -і, шлéек, *ж.* **1.** Стужка ці палоска тканіны, перакінутая цераз плячо, якая падтрымлівае спадніцу, ліфчык і пад. **2.** *мн.* Падцяжкі. *Штаны на шлейках.* ‖ *прым.* **шлéечны**, -ая, -ае.

**ШЛÉЙНЫ** *гл.* шляя.

**ШЛЕЙФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Доўгі падол жаночай сукенкі, які цягнецца ззаду. **2.** *перан.* Тое, што цягнецца, сцелецца за чым-н. (спец.). *Вадзяны ш. за цеплаходам. Ш. газу.* **3.** Комплекс навясных і прычапных агрэгатаў да самаходнай машыны (спец.). *Ш. машын для трактара.* ‖ *прым.* **шлéйфны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **шлéйфавы**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**ШЛЕМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Старажытны металічны воінскі галаўны ўбор, які ахоўваў галаву ад udараў, стрэл. **2.** Спецыяльны галаўны ўбор лётчыкаў, танкістаў, спартсменаў і інш. *Скураны ш.* **3.** Спецыяльнае прыстасаванне, якое ахоўвае галаву і ізалюе яе ад навакольнага асяроддзя. *Вадалазны ш. Кіслародны ш.*

**ШЛЕМАФÓН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Шлем лётчыкаў, касманаўтаў, танкістаў з прыстасаваннямі для ўключэння ў перагаворныя і іншыя ўстройствы. ‖ *прым.* **шлемафóнны**, -ая, -ае.

**ШЛЁНКА**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.* Авечка танкашэрснай пароды, а таксама футра і воўна яе. ‖ *прым.* **шлёнскі**, -ая, -ае. *Шлёнская парода авечак.*

**ШЛЁПАНЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* (разм.). Хатнія туфлі, звычайна без заднікаў.

**ШЛЁПАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* (разм.). Падаць з шумам, плазам ці ўсім целам. *Ш. ў ваду.* ‖ *аднакр.* **шлёпнуцца**, -нуся, -нешся, -нецца; -ніся. ‖ *наз.* **шлёпанне**, -я, *н.*

**ШЛЁПАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго (што), па чым* і *чым.* Ударaць, стукаць чым-н. мяккім, плоскім. *Ш. па руцэ. Ш. вёсламі па вадзе. Ш. басаножкамі.* **2.** Тое, што і *шлёпацца* (разм.). *Ш. у гразь.* **3.** Ісці, хадзіць, крочыць (разм.). *Ш. па гразі.* ‖ *аднакр.* **шлёпнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 1 і 2 знач.). ‖ *наз.* **шлёпанне**, -я, *н.*

**ШЛІФАВÁЛЬШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Рабочы, спецыяліст па шліфаванні. ‖ *ж.* **шліфавáльшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **шліфавáльшчыцкі**, -ая, -ае.

**ШЛІФАВÁЦЬ**, -фýю, -фýеш, -фýе; -фýй; -фавáны; *незак., што.* **1.** Апрацоўваць паверхню металу, драўніны і пад. трэннем для надання гладкасці, пэўнай формы. **2.** *перан.* Удасканальваць, паляпшаць. *Ш. мову і стыль твора.* ‖ *зак.* **адшліфавáць**, -фýю, -фýеш, -фýе; -фýй; -фавáны. ‖ *наз.* **шліфавáнне**, -я, *н. і* **шліфóўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **шліфавáльны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **шліфóвачны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Шліфавальны станок.*

**ШЛЮБ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Сямейны саюз мужчыны і жанчыны; сумеснае ўзаконенае жыццё мужчыны і жанчыны. *Зарэгістраваць ш. Уступіць у ш.* **2.** Абрад, цырымонія ўступлення ў такі саюз. *Ехаць да шлюбу.* ‖ *прым.* **шлюбны**, -ая, -ае.

**ШЛЮБАРАЗВÓДНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да разводу, да скасавання шлюбу. *Ш. працэс.*

**ШЛЮЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Збудаванне на рацэ, канале для пропуску суднаў пры розным узроўні вады на шляху іх руху, якое складаецца з камеры (камер) з варотамі. ‖ *прым.* **шлюзавы**, -ая, -ае *і* **шлюзны**, -ая, -ае.

**ШЛЮЗАВÁЦЬ**, -зýю, -зýеш, -зýе; -зýй; -завáны; *зак.* і *незак., што* (спец.). **1.** Устанавіць (устанаўліваць) шлюзы. *Ш. раку.* **2.** Прапусціць (прапускаць) праз шлюз. *Ш. танкер.* ‖ *наз.* **шлюзавáнне**, -я, *н.*

**ШЛЮ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* Лодка з моцным шырокім корпусам. *Выратавальная ш.* ‖ *прым.* **шлю́пачны**, -ая, -ае.

**ШЛЯ́ГА**, -і, *ДМ* шля́зе, *мн.* -і, шляг, *ж.* Прылада, ударамі якой трамбуюць, ушчыльняюць глебу, а таксама выраўноўваюць паверхню.

**ШЛЯ́ГЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Модная папулярная эстрадная песня, мелодыя.

**ШЛЯК**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Палоска па краі тканіны іншага колеру або іншага ўзору. *Абрус з сінім шлякам.* ‖ *памянш.* **шлячо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.*; *прым.* **шлячко́вы**, -ая, -ае. ‖ *прым.* **шляко́вы**, -ая, -ае.

**ШЛЯХ**, -у, на шляху́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Тое, што і *дарога* (у 1 знач.). *Шырокі ш. Ш. у гарах. Іх шляхі разышліся* (перан.: яны рассталіся). **2.** Месца, лінія ў прасторы, дзе адбываецца рух, перамяшчэнне. *Паветраны ш. Чыгуначны ш. Шляхі зносін.* **3.** Падарожжа, перамяшчэнне куды-н. *Небяспечны ш. Ш. праз балота.* **4.** Напрамак, маршрут. *Збіцца са шляху. Правільны ш. развіцця. Кружным шляхам.* **5.** *перан.* Напрамак дзейнасці, развіцця чаго-н., спосаб дзеяння. *Накіраваць на правільны ш. Мірным шляхам.* ○ **Дыхальныя шляхі** — орган у выглядзе каналаў, якія забяспечваюць жыццядзейнасць арганізма. ◊ **Апошні шлях** — пра пахаванне каго-н. **Быць на шляху** *да чаго-н.* — набліжацца да чаго-н. **Жыццёвы шлях** — жыццё. **Стаяць на шляху** *чыім* або *у каго* — служыць перашкодай каму-н.

**ШЛЯ́ХАМ**, *прыназ. з Р.* Пры дапамозе чаго-н. *Перападрыхтоўка кадраў ш. арганізацыі курсаў.*

**ШЛЯХАПРАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мост цераз другі шлях на месцы перакрыжавання дзвюх дарог. ‖ *прым.* **шляхаправо́дны**, -ая, -ае.

**ШЛЯХЕ́ТНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** *гл.* шляхетны. **2.** Прыналежнасць да дваранскага саслоўя (уст.).

**ШЛЯХЕ́ТНЫ**, -ая, -ае (уст.). **1.** Дваранскі, дваранскага паходжання. **2.** Высакародны, з вялікім пачуццём годнасці; які адпавядае існуючым нормам маралі: выхаваны, сумленны. *Ш. тон. Ш. ўчынак. Шляхетная дзяўчына.* ‖ *наз.* **шляхе́тнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.). *У яго паводзінах адчувалася ш.*

**ШЛЯ́ХТА**, -ы, *ДМ* -хце, *ж. і* **ШЛЯХЕ́ЦТВА**, -а, *н.* У 13 — пачатку 20 ст. ў Беларусі, Польшчы і Літве: дробнапамеснае дваранства. ‖ *прым.* **шляхе́цкі**, -ая, -ае *і* **шляхе́чы**, -ая, -ае. *Шляхецкае саслоўе. Шляхечыя засценкі.*

**ШЛЯ́ХЦІЦ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асобны прадстаўнік шляхты, дробнапамесны дваранін. ‖ *ж.* **шляхця́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ШЛЯХЦЮ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (пагард.). Звычайна пра маладога шляхціца. *Цяпер гэты ш. не будзе задавацца.*

**ШЛЯЧКО́ВЫ** *гл.* шляк.

**ШЛЯЧО́К** *гл.* шляк.

**ШЛЕЯ́**, -і́, *мн.* шлеі́ *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) шлеі́, шлей, *ж.* **1.** Частка збруі, рэмень, які прымацаваны двума канцамі да хамута, агібае ўсё тулава каня і падтрымліваецца папярочнымі рамянямі. **2.** У парнай запрэжцы: шырокая лямка, якая замяняе хамут. ‖ *прым.* **шле́йны**, -ая, -ае.

**ШМА́ЛЕЦ**, -льцу, *м.* Гусіны тлушч. ‖ *прым.* **шма́льцавы**, -ая, -ае. *Шмальцавая мазь.*

**ШМАЛЬЦАВА́ЦЬ**, -цу́ю, -цу́еш, -цу́е; -цу́й; *незак., што.* Запэцкваць, вымазваць чым-н. тлустым, ліпкім. *Ш. целагрэйку.* ‖ *зак.* **вы́шмальцаваць**, -цую, -цуеш, -цуе; -цуй; -цаваны. ‖ *наз.* **шмальцава́нне**, -я, *н.*

**ШМАНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* У выразе: **і не шманае** (разм.) — не звяртае ніякай увагі, не рэагуе, захоўвае поўны спакой.

**ШМАРАВА́ННЕ**, -я, *н.* (разм.). **1.** *гл.* шмараваць. **2.** Лячэбная мазь, лякарства. *Прыгатаваць ш. з зёлак.*

**ШМАРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак.* (разм.). **1.** *каго-што.* Націраць, намазваць каго-, што-н.; праціраць, ачышчаючы што-н. *Ш. варам дратву. Ш. шкло.* **2.** *аб што.* Церціся, зачэпліваючыся за што-н. у час руху, цягнучыся па чым-н. *Кола шмаравала аб бакавіну тарантаса.* ‖ *зак.* **нашмарава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны (да 1 знач.). ‖ *звар.* **шмарава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся (да 1 знач.). *Ш. шкіпінарам; зак.* **нашмарава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся. ‖ *наз.* **шмарава́нне**, -я, *н.*

**ШМАРАВО́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм., лаянк.). Неахайны чалавек, мурза.

**ШМАРГАНУ́ЦЬ**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́; *зак.* **1.** *гл.* шморгаць. **2.** Хутка, непрыкметна пайсці, прашмыгнуць (разм.). *Ш. за дзверы.*

**ШМАТ**[1], *прысл.* **1.** Вялікая колькасць, дастатковая колькасць каго-, чаго-н., многа. *Ш. працуе. Ш. часу прайшло. Працы ў мяне цяпер ш.* (у знач. вык.). *Ці ш. людзей сабралася?* **2.** У спалучэнні з прым. і прысл. вышэйш. ст. азначае: значна, намнога. *Ён ш. маладзейшы за мяне.* **3.** У спалучэнні з адноснымі займеннікамі абазначае: многія, многае. *Ш. каму расказала пра гэта. Ш. якія падзеі адбыліся за гэты час.*

**ШМАТ**[2], -а́, *М* шмаце́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (разм.). Абрывак, адарваны кавалак чаго-н. *Валяліся шматы паперы.*

**ШМАТ...** Першая частка складаных слоў у знач. шмат[1], многа, напр.: *шматвопытны, шматвяковы, шматгалосы, шматскладовы, шматкаляровы.*

**ШМАТАБЯЦА́ЮЧЫ**, -ая, -ае. Які падае вялікія надзеі, прадракае што-н. значнае. *Ш. студэнт. Шматабяцаючая паездка.*

**ШМАТА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны; *незак., каго-што* (разм.). Моцна хістаць, трэсці; шкуматаць. *Вецер шматаў брызент.* ‖ *зак.* **пашмата́ць**, -а́ю, -а́еш, -а́е; -а́ны. ‖ *аднакр.* **шматану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **шмата́нне**, -я, *н.*

**ШМАТБАКО́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Абавязковы для некалькіх зацікаўленых бакоў ці ўдзельнікаў чаго-н. *Ш. дагавор.* **2.** Які вызначаецца шырынёй, разнастайнасцю, рознабаковы. *Шматбаковая дапамога.* ‖ *наз.* **шматбакова́сць**, -і, *ж.*

**ШМАТГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. Які жыве, існуе, працягваецца шмат гадоў. *Шматгадовыя травы. Шматгадовая дзейнасць.*

**ШМАТГРА́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае некалькі граней. *Ш. камень.* **2.** *перан.* Усебаковы, рознабаковы. *Шматгранная дзейнасць.* ‖ *наз.* **шматгра́ннасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ШМАТЗНА́ЧНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Які мае вялікае значэнне, важныя вынікі, значны ўплыў на каго-, што-н. *Шматзначная падзея.* **2.** Які робіць намёк на што-н. важнае, пра многае гаворыць. *Ш. позірк. Шматзначна* (прысл.) *усміхацца.* **3.** Які мае многа значэнняў. *Шматзначнае слова.* ‖ *наз.* **шматзна́чнасць**, -і, *ж.*

**ШМАТЗНА́ЧНЫ**[2], -ая, -ае. Які складаецца з многіх лічбавых знакаў. *Шматзначная лічба.* ‖ *наз.* **шматзна́чнасць**, -і, *ж.*

**ШМАТКРО́П'Е**, -я, *мн.* -і, -яў, *н.* Знак прыпынку ў выглядзе трох пастаўленых побач кропак (...), а таксама рад кропак, які абазначае пропуск у тэксце.

**ШМАТЛІ́КІ**, -ая, -ае. **1.** Які складаецца з вялікай колькасці каго-, чаго-н. *Ш. атрад.* **2.** Які праводзіцца, маецца, прысутнічае і пад. ў вялікай колькасці. *Праводзіць шматлікія гутаркі з насельніцтвам.* ‖ *наз.* **шматлі́касць**, -і, *ж.*

**ШМАТЛЮ́ДНЫ**, -ая, -ае. З мноствам людзей, мнагалюдны. *Шматлюдная аўдыторыя.* ‖ *наз.* **шматлюдна́сць**, -і, *ж.*

**ШМАТНАЦЫЯНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. У склад якога ўваходзяць многія нацыі, народнасці. *Шматнацыянальная дзяржава.* ‖ *наз.* **шматнацыяна́льнасць**, -і, *ж.*

**ШМАТО́К**, -тка́, *мн.* -ткі́, -тко́ў, *м.* **1.** Абрэзак, абрывак скуры, тканіны і пад. *Ш. матэрыі.* **2.** Жмут чаго-н. *Ш. поўсці.* **3.** Невялікі кавалак, камяк чаго-н.; нязначная колькасць чаго-н. *Ш. сала. Сям-там тырчалі шматкі сухой травы.* ‖ *прым.* **шмато́чны**, -ая, -ае *і* **шматко́вы**, -ая, -ае.

**ШМАТПАКУ́ТНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які перанёс шмат пакут, выпрабаванняў. *Ш. народ. Шматпакутнае жыццё.* ‖ *наз.* **шматпаку́тнасць**, -і, *ж.*

**ШМАТПО́ЛЛЕ**, -я, *н.* Тое, што і *мнагаполле.* ‖ *прым.* **шматпо́льны**, -ая, -ае.

**ШМАТРАЗО́ВЫ**, -ая, -ае. Які паўтараецца ці паўтараўся шмат разоў. *Шматразовае рэха.* ‖ *наз.* **шматразо́васць**, -і, *ж.*

**ШМАТСКЛАДО́ВЫ**, -ая, -ае. Які ў сваёй будове мае некалькі, шмат складоў. *Шматскладовае слова.* ‖ *наз.* **шматскладо́васць**, -і, *ж.*

**ШМАТСЛО́ЎЕ**, -я, *н.* Празмерная колькасць слоў (у размове, на пісьме і пад.). *Ён не любіць шматслоўя.*

**ШМАТСЛО́ЎНЫ**, -ая, -ае. Для якога ўласціва шматслоўе. *Шматслоўнае апавяданне пра што-н. Я тут не буду шматслоўным.* ‖ *наз.* **шматсло́ўнасць**, -і, *ж.*

**ШМАТСТУПЕ́ННЫ**, -ая, -ае. Які праходзіць праз шэраг ступеней, стадый, не прамы. *Шматступенныя выбары.* ‖ *наз.* **шматступе́ннасць**, -і, *ж.*

**ШМАТСТУПЕ́НЬЧАТЫ**, -ая, -ае. Які складаецца з некалькіх частак, ступеней. *Шматступеньчатая ракета.* ‖ *наз.* **шматступе́ньчатасць**, -і, *ж.*

**ШМАТСЯМЕ́ЙНЫ**, -ая, -ае. Які мае вялікую сям'ю, шмат дзяцей. *Дапамога шматсямейным.* ‖ *наз.* **шматсяме́йнасць**, -і, *ж.*

**ШМАТТЫРА́ЖКА**, -і, *ДМ* -жцы, *мн.* -і, -жак, *ж.* Друкаваная газета прадпрыемства, установы, якая выдаецца значным тыражом. *Заводская ш.*

**ШМАТТЫРА́ЖНЫ**, -ая, -ае. З вялікім тыражом. *Шматтыражнае выданне.*

**ШМАЦЦЁ**, -я́ *і* **ШМО́ЦЦЕ**, -я, *н., зб.* Рванае адзенне, шматкі чаго-н. *Куды апранаць такое ш.*

**ШМО́РГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; -аны; *незак.* **1.** *каго-што.* Цягнуць, тузаць кароткімі, рэзкімі рухамі; такімі рухамі зрываць, абрываць што-н. *Ш. суседа за рукаў. Ш. лісце з куста.* **2.** *што чым, чым па чым* і *без дап.* Праводзіць па чым-н., намазваючы што-н.; праводзіць чым-н. па якой-н. паверхні, звычайна ўтвараючы характэрны гук. *Ш. нітку воскам. Ш. запалкай па карабку.* **3.** *чым.* З шумам часта ўцягваць (носам) паветра. *Ш. носам.* ‖ *аднакр.* **шмаргану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **шмо́ргнуць**, -ну, -неш, -не; -ні (да 3 знач.). ‖ *наз.* **шмо́рганне**, -я, *н.*

**ШМО́ЦЦЕ** *гл.* шмаццё.

**ШМУ́ЛЯЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -яецца; *незак.* **1.** Выцірацца, зношвацца ад частага ўжытку. *Шмуляецца каўнер.* **2.** Церціся, націрацца (пра скуру). *Ад грубай тканіны шмуляецца шыя.*

**ШМУ́ЛЯЦЬ**, -яю, -яеш, -яе; *незак., што.* **1.** Выцiраць, зношваць, пашкоджваць ад частага ўжытку. *Ш. адзенне.* **2.** Сціраць, націраць (скуру). *Цвёрды хамут шмуляе шыю.* ‖ *зак.* **вы́шмуляць**, -яю, -яеш, -яе; -яны (да 1 знач.).

**ШМЫ́ГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* (разм.). **1.** Хутка хадзіць, рухацца каля каго-, чаго-н., паміж кім-, чым-н. *Па вуліцы шмыгаюць машыны.* **2.** Праходзіць, выходзіць хутка, незаўважана. *Як убачыць мяне, шмыгае за дзверы.* **3.** *чым.* Тое, што і *шморгаць* (у 3 знач.). *Ш. носам.* ‖ *аднакр.* **шмыгну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **шмыгану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **шмы́ганне**, -я, *н.* (да 1 і 3 знач.).

**ШНА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* (разм.). Шукаць навобмацак або заходзіць, заглядваць у розныя месцы, шукаючы каго-, што-н. *Ш. па закутках.* ◊ **Шнарыць вачамі** — пільна ўглядацца, шукаць позіркам. ‖ *наз.* **шна́ранне**, -я, *н.*

**ШНІ́ЦАЛЬ**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* Тонкая адбіўная ці рубленая катлета.

**ШНУР**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Кручаная ці вітая тонкая вяроўка. *Нацягнуць ш. Ш. з адвесам.* **2.** Электрычны провад, які складаецца з некалькіх ізаляваных жыл (спец.). **3.** Вогнеправодны жгут, які перадае іскру выбуховаму рэчыву (спец.). *Дэтануючы ш.* **4.** Чарада (птушак); шэраг аднародных прадметаў, размешчаных адзін за адным. *Паляцеў ш. гусей. Цягнуцца шнурам фурманкі.* **5.** Вузкая палоска зямлі. *Араць свой ш.* ‖ *прым.* **шнуравы́**, -а́я, -о́е.

**ШНУРАВА́ЦЦА**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся; *незак.* Зацягваць на сабе што-н. шнуруючы. *Ш. ў гарсэт.* ‖ *зак.* **зашнурава́цца**, -ру́юся, -ру́ешся, -ру́ецца; -ру́йся. ‖ *наз.* **шнурава́нне**, -я, *н.*

**ШНУРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак.* **1.** *што.* Сцягваць шнурком. *Ш. чаравікі.* **2.** *што.* Прашываць шнурам. *Ш. інвентарную кнігу.* **3.** Часта хадзіць, ездзіць узад і ўперад (разм.). *Ш. па вёсцы.* ‖ *зак.* **зашнурава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны (да 1 знач.) *і* **прашнурава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны (да 2 і 3 знач.). ‖ *наз.* **шнурава́нне**, -я, *н.* *і* **шнуро́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **шнурава́льны**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.).

**ШНУРО́К**, -рка́, *мн.* -ркі́, -ркo´ў, *м.* Тонкі шнур (у 1, 4 і 5 знач.), невялікі шнур. *Шнуркі з чаравікаў. Ш. слядоў на снезе. Зямля была пабіта на шнуркі.*

**ШНУРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* **1.** *гл.* шнураваць. **2.** *мн.* -і, -ро́вак. Шнур на адзенні, абутку, а таксама само прашнураванае месца. *Распусціць шнуроўку на сукенцы.* ‖ *прым.* **шнуро́вачны**, -ая, -ае.

**ШНЫ́ПАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* (разм.). **1.** Заглядваць у розныя месцы, шукаючы, высочваючы каго-, што-н. *Ш. па кладоўках.* **2.** Хадзіць, рухацца сюды-туды, у розных напрамках. *Па вуліцы шныпараць сышчыкі.* ‖ *наз.* **шны́паранне**, -я, *н.*

**ШНЫ́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* (разм.). **1.** Тое, што і *шнарыць.* **2.** Тое, што і *шныпарыць* (у 2 знач.). ‖ *наз.* **шны́ранне**, -я, *н.*

**ШОК**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Агульнае цяжкае парушэнне функцый арганізма ў выніку моцнага фізічнага пашкоджання ці псіхічнага ўзрушэння. *Устане шоку. Траўматычны ш.* ‖ *прым.* **шо́кавы**, -ая, -ае.

**ШО́ЛАХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Лёгкае ледзь чутнае шапаценне, шорах, шоргат. *Ш. дрэў.*

**ШО́ЛУДЗІ**, -яў. Заразнае скурнае захворванне, а таксама струпы, сып, якія паяўляюцца пры гэтым захворванні на скуры пад валасамі.

**ШО́МПАЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Стрыжань для чысткі і змазвання канала ствала ручной агнястрэльнай зброі, а таксама, у старажытнасці, для забівання з дула зарада ў пісталеты і стрэльбы. *Даць шомпалаў* (пакараць, наносячы ўдары такімі стрыжнямі; уст.). ‖ *прым.* **шо́мпальны**, -ая, -ае.

**ШО́РАХ**, -у, *мн.* -і, -аў, *м.* Глухі гук ад трэння, лёгкага дакранання да чаго-н. *Ш. сухога лісця.*

**ШО́РГАТ**, -у, *М* -гаце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Слабы, невыразны шум ад руху, трэння аднаго прадмета аб другі. *Ш. пілы.*

**ШО́РГАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** Утвараць шоргат, з шумам праводзіць чым-н. *Шыны аўтамабіляў шоргалі па асфальце. Ш. мятлой па тратуары.* **2.** *чым* і *без дап.* Хадзіць, не падымаючы ног. *Не шоргай ботамі. Хопіць ш. па хаце.* **3.** Шукаць навобмацак, мацаць. *Ш. упоцемку па дзвярах.* ‖ *аднакр.* **шаргану́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **шо́ргнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. ‖ *наз.* **шо́рганне**, -я, *н.*

**ШО́РСТКІ**, -ая, -ае. **1.** Шурпаты, агрубелы, калючы, цвёрды. *Ш. асфальт. Шорсткая далонь. Ш. снег.* **2.** *перан.* Рэзкі расшучы, з цвёрдым характарам. *Ш. чалавек.* ‖ *наз.* **шо́рсткасць**, -і, *ж.*

**ШО́РТЫ**, -аў. Род кароткіх (вышэй каленяў) штаноў. *Мужчынскія ш.*

**ШО́РХАТ**, -у, *М* -хаце, *м.* Глухі гук, шум ад руху, трэння, лёгкага дакранання. *Ш. лісця. Ш. ног.*

**ШО́РХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* Тое, што і *шоргаць. Шорхаў гэбель. Пад нагамі шорхала лісце. Ш. мятлой па панадворку.* ‖ *наз.* **шо́рханне**, -я, *н.*

**ШО́РЫ**, -аў. **1.** Цвёрдыя пласцінкі, прымацаваныя да вуздэчкі на ўзроўні вачэй, якія не даюць магчымасці каню глядзець па баках. *Хто згадзіўся надзець ш., той надзене і хамут* (прыказка). **2.** У парнай запрэжцы: збруя без дугі і хамута, са шлеямі (*гл.* шляя ў 2 знач.; спец.). **3.** *перан.* У некаторых выразах: тое, што перашкаджае каму-н. правільна разумець наваколле; абмежаванасць (кніжн.). *Ш. на вачах у каго-небудзь.* ◊ **Браць у шоры, трымаць у шорах** *каго* (разм.) — строга абмяжоўваць чые-н. дзеянні, свабоду дзейнасці. ‖ *прым.* **шо́рны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ШОСТ**, шаста́, *М* шасце́, *мн.* шасты́, -о́ў, *м.* Доўгая тонкая палка ці жэрдка. *Скачок з шастом* (у спорце). ‖ *памянш.* **шасто́к**, -тка́, *мн.* -ткі́, -ткo´ў, *м.* ‖ *прым.* **шаставы́**, -а́я, -о́е (спец.). *Шаставая лінія сувязі* (на шастах).

**ШО́СТЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* шэсць. **2.** Які атрымліваецца пры дзяленні на шэсць. *Шостая частка.* **3.** *у знач. наз.* **шо́стая**, -ай, *ж.* Шостая частка чаго-н. *Адна шостая.*

**ШОУ**, *нескл., н.* **1.** Пышнае эстраднае відовішча. *Канцэрт-ш. Ілюзійнае ш.* (у цырку). **2.** *перан.* Што-н. паказное, разлічанае на шумны знешні эфект. *Палітычнае ш.*

**ШОЎК**, -у, *мн.* шаўкі́, шаўко́ў, *м.* **1.** Ніткі, якія выпрацоўваюцца з выдзяленняў вусеня шаўкапрада. **2.** Тканіна з такіх нітак, а таксама са штучнага, сінтэтычнага валакна. **3.** Адзенне з такой тканіны. *Хадзіць у шаўках. У даўгу, як у шаўку* (прымаўка: усім павінен). **4.** *перан.* Пра што-н. мяк-

кае, шаўкавістае. *Ш. валасоў.* || *прым.* **шаўко́вы**, -ая, -ае (да 1, 2 і 4 знач.).

**ШОЎКАМАТА́ННЕ**, -я, *н.* (спец.). Размотка шаўковых коканаў з мэтай атрымання шоўку-сырцу. || *прым.* **шоўкамата́льны**, -ая, -ае.

**ШОЎКАПРАДЗЕ́ННЕ**, -я, *н.* Працэс вырабу шаўковай пражы з коканаў, якія не паддаюцца размотванню. || *прым.* **шоўкапрадзі́льны**, -ая, -ае.

**ШПА́ГА**, -і, *ДМ* шпа́зе, *мн.* -і, шпаг, *ж.* Халодная колючая зброя з прамым доўгім клінкам. ◊ **Скрыжаваць шпагі** — пачаць паядынак. || *прым.* **шпа́жны**, -ая, -ае.

**ШПАГА́Т**, -у, *М* -га́це, *м.* **1.** Моцная тонкая вяроўка. **2.** У гімнастыцы: фігура, пры якой ногі спартсмена, што сядзіць, шырока рассунуты і выцягнуты ў адну прамую лінію. || *прым.* **шпага́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШПАЖЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен — фехтавальшчык на шпагах. || *ж.* **шпажы́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ШПАК**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Невялікая пералётная птушка атрада вераб'інападобных з чорным апярэннем. || *памянш.* **шпачо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* || *прым.* **шпако́вы**, -ая, -ае *і* **шпачы́ны**, -ая, -ае.

**ШПАКЛЁЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (спец.). **1.** *гл.* шпакляваць. **2.** Замазка, якой шпаклююць.

**ШПАКЛЯВА́ЦЬ**, -люю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны; *незак., што* (спец.). Замазваць, запаўняць трэшчыны, шчыліны спецыяльным саставам перад паліроўкай, фарбаваннем. *Ш. сцены. Ш. падлогу.* || *зак.* **зашпаклява́ць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лява́ны. || *наз.* **шпаклява́нне**, -я, *н. і* **шпаклёўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* || *прым.* **шпаклёвачны**, -ая, -ае. *Шпаклёвачныя работы.*

**ШПАКО́ЎНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж. і* (разм.) **ШПАКО́ЎНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* Жыллё для шпакоў у выглядзе невялікай будачкі, прымацаванай на доўгай жэрдцы ці на дрэве каля дома. || *прым.* **шпако́ўніцкі**, -ая, -ае.

**ШПАЛЕ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -ле́р *і* -аў, *ж.* **1.** толькі *мн.* Матэрыял у выглядзе шырокіх палос узорыстай паперы для абклейкі сцен у жылых памяшканнях. **2.** толькі *мн.* Шарэнгі войск па баках руху каго-н. **3.** звычайна *мн.* Рад дрэў, хмызняку па баках дарогі (спец.). || *прым.* **шпале́рны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШПА́ЛЫ**, шпал, *адз.* шпа́ла, -ы, *ж.* **1.** Масіўныя папярочныя драўляныя або жалезабетонныя брусы, на якія ўкладваюць рэйкі. **2.** *адз.* Неафіцыйная назва знака адрознення (у выглядзе прамавугольніка) на пятліцах у старшага каманднага саставу Чырвонай Арміі да 1943 г. (разм.). *З трыма шпаламі на пятліцах.* || *прым.* **шпа́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШПАНА́**, -ы́, *ж.*, звычайна *зб.* (разм., пагард.). Злачынцы, жулікі, бадзягі.

**ШПАНГО́ЎТ**, -а, *М* -ўце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Папярочны крывы брус у корпусе карабля ці самалёта, які забяспечвае трываласць бартоў і днішча.

**ШПАРГА́ЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* (разм.). **1.** Лісток паперы з запісамі, якім тайна карыстаецца нядобрасумленны навучэнец у час праверкі яго ведаў. **2.** Паперка з тэкстам, загадзя падрыхтаваная для выступаючага. *Гаварыць па шпаргалцы.* || *прым.* **шпарга́лачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШПА́РКІ**, -ая, -ае. Тое, што і *хуткі* (у 1 і 2 знач.). *Шпаркая язда. Ш. погляд.* || *наз.* **шпа́ркасць**, -і, *ж.*

**ШПА́РЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак., што* і *без дап.* (разм.). Рабіць што-н. з асобай сілай, энергіяй, імпэтам і пад. *Ш. па шашы на матацыкле. Ш. на гармоніку.*

**ШПА́ТЫ**, -аў, *адз.* шпат, -у, *М* шпа́це, *м.* Назва групы мінералаў, якія валодаюць здольнасцю пры ўдары расколвацца на кавалкі геаметрычна правільнай формы. *Вапнавы шпат. Палявы шпат.*

**ШПА́ЦЫР**, -у, *м.* Прагулка па свежым паветры. *Выйсці на ш.*

**ШПАЦЫРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; *зак.* Хадзіць на свежым паветры, адпачываючы, прагульвацца або хадзіць не спяшаючыся ўзад і ўперад. *Ш. вечарам па скверы. Што шпацыруеш па хаце?* || *зак.* **пашпацырава́ць**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й. || *наз.* **шпацырава́нне**, -я, *н.*

**ШПАЧАНЯ́** *і* **ШПАЧАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Птушаня шпака.

**ШПАЧЫ́НЫ** *гл.* шпак.

**ШПЕГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Тайны агент, які сочыць за кім-н., шпік. || *прым.* **шпе́гаўскі**, -ая, -ае.

**ШПЕГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; *незак.* (разм.). Тайна сачыць за кім-н., шпіёніць. || *наз.* **шпегава́нне**, -я, *н.*

**ШПЕНЬ**, шпяня́, *мн.* шпяні́, шпянёў, *м.* Стрыжань падоўжанай цыліндрычнай ці чатырохграннай формы на паверхні дэталі, які ўваходзіць у паглыбленне другой дэталі для замацавання (спец.); завостраны стрыжань наогул для насаджвання чаго-н. || *прым.* **шпянёвы**, -ая, -ае.

**ШПІГ**, -у, *м.* (разм.). Прасоленае падскурнае свіное сала.

**ШПІГАВА́ЦЬ**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны; *незак.* **1.** *каго-што.* Начыняць шпігам, утыкаючы яго ў надрэзы. *Ш. дзічыну.* **2.** *перан., каго (што).* Заўзята навучаць, паведамляць каму-н. многа чаго-н., прымушаць засвоіць што-н. (разм.). || *наз.* **нашпігава́ць**, -гу́ю, -гу́еш, -гу́е; -гу́й; -гава́ны. || *наз.* **шпігава́нне**, -я, *н. і* **шпіго́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ШПІЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тайны агент, які займаецца шпіянажам. || *ж.* **шпіёнка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **шпіёнскі**, -ая, -ае.

**ШПІЁНІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак.* (разм.). **1.** Займацца шпіянажам. **2.** *за кім.* Тайна сачыць за кім-н. *Што ты за мной шпіёніш?* || *наз.* **шпіёнства**, -а, *н.*

**ШПІК**[1], -у, *м.* (спец.). Касцявы мозг.

**ШПІК**[2], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *шпег.*

**ШПІЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Востраканцовы конусападобны стрыжань, якім завяршаецца верх будынка. *Ш. вежы.* || *прым.* **шпі́левы**, -ая, -ае (спец.).

**ШПІ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* **1.** Прыстасаванне ў выглядзе вілачкі для заколвання валасоў. *Сколваць валасы шпількай.* **2.** Засцежка для вопраткі, адзін канец якой хаваецца ў кручкаватае паглыбленне — галоўку. *Заколваць кішэню шпількай.* **3.** Іголка з каляровай галоўкай для аздаблення жаночага галаўнога ўбору. **4.** Тонкі і высокі абцас на жаночым туфлі (разм.). **5.** *перан.* З'едлівая заўвага (разм.). *Падпусціць шпільку каму-н.* || *прым.* **шпі́лечны**, -ая, -ае (да 1—3 знач.) *і* **шпі́лькавы**, -ая, -ае (да 1—3 знач.).

**ШПІНА́Т**, -у, *М* -на́це, *м.* Агародная травяністая расліна сямейства лебядовых, маладое сакавітае лісце якой ідзе ў ежу. || *прым.* **шпіна́тавы**, -ая, -ае *і* **шпіна́тны**, -ая, -ае.

**ШПІНГАЛЕ́Т**, -а, *М* -ле́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Засаўка для запірання створак акон, дзвярэй. **2.** Пра падлетка, які мае малы рост (разм.). *Ш., а лезе ў дарослую кампанію.* || *прым.* **шпінгале́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШПІТАЛІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго (што)* (спец.). Змясціць (змяшчаць) у бальніцу, шпіталь для лячэння. || *наз.* **шпіталіза́цыя**, -і, *ж.*

**ШПІТА́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Бальніца, пераважна вайсковая. *Палявы ш.* || *прым.* **шпіта́льны**, -ая, -ае.

**ШПІЦ**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Тое, што і *шпіль.*

**ШПІЦ**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі пакаёвы сабака з пушыстай поўсцю. *Карлікавы ш.*

**ШПІЯНА́Ж**, -у, *м.* Выведванне, збіранне або выкраданне звестак, якія складаюць ваенную або дзяржаўную тайну, для перадачы іх іншай дзяржаве. *Пайсці пад трыбунал за ш.*

**ШПО́КАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* (разм.). Падаючы, стукаючыся аб што-н., утвараць кароткі глухі гук. *Жалуды шпокалі з дуба на дол.* || *аднакр.* **шпо́кнуць**, -ну, -неш, -не; -ні. || *наз.* **шпо́канне**, -я, *н.*

**ШПО́РА**, -ы, *мн.* -ы, шпор, *ж.* **1.** Сагнутая па форме абцаса металічная дужка з кольцам на канцы, якая прымацоўваецца да бота наезніка і служыць для пануквання каня. *Даць шпоры каню* (націснуць шпорамі). **2.** Рагавы завостраны выступ на нагах самцоў некаторых птушак. *Шпоры ў пеўня.* **3.** Выступ на вобадзе кола ці на звёнах гусеніц трактара, танка і пад. (спец.). || *прым.* **шпо́рны**, -ая, -ае.

**ШПРО́ТЫ**, -аў, *адз.* шпрот, -а, *М* -ро́це, *м.* Дробная марская вэнджаная рыба, кансерваваная ў алеі. || *прым.* **шпро́тавы**, -ая, -ае *і* **шпро́тны**, -ая, -ае.

**ШПРЫЦ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Медыцынскі інструмент — цыліндрык з поршнем і іголкай для ўвядзення ці адсмоктвання вадкасці. ‖ *прым.* **шпры́цавы**, -ая, -ае.

**ШПУ́ЛЬКА**, -і, *ДМ* -льцы, *мн.* -і, -лек, *ж.* **1.** Невялікі, звычайна драўляны цыліндр, на які намотваецца што-н. *Ш. ніtак.* **2.** Прыстасаванне ў швейных, ткацкіх і пад. машынах для намотвання нітак. **3.** Тое, што і *шпуля* (у 3 знач.; спец.). ‖ *прым.* **шпу́лечны**, -ая, -ае *і* **шпу́лькавы**, -ая, -ае.

**ШПУ́ЛЯ**, -і, *мн.* -і, шпуль, *ж.* **1.** Тое, што і *шпулька* (у 1 і 2 знач.). **2.** Насадка з драўніны ці кардону, якая надзяваецца на верацяно для намотвання на яе пражы. **3.** Стрыжань для намотвання дроту, кабелю і пад., а таксама намотаны сам дрот, кабель і пад. (спец.). *Ш. кабелю.*

**ШПУНТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* (спец.). **1.** Падоўжны выступ ці паз для злучэння дошак, брусоў і пад., а таксама злучэнне такога віду, пры якім выступ адной са злучаных частак уваходзіць у паз другой часткі. **2.** Дошка, брус, бэлька і пад., на адным ка́нцы якой зроблены падоўжны выступ, а на другім — паз. **3.** Корак, якім затыкаюць бочку. ◊ **Ад усіх бочак шпунт** або **пад усе бочкі шпунт** — пра чалавека, якога калі трэба і калі не трэба пасылаюць выконваць розныя даручэнні, просьбы. ‖ *прым.* **шпунтавы́**, -а́я, -о́е (да 1 і 2 знач.).

**ШПУР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Цыліндрычная адтуліна, якая прасвідроўваецца ў горнай пародзе для размяшчэння выбуховага рэчыва, а таксама наогул зробленая свердлам вузкая свідравіна. ‖ *прым.* **шпуравы́**, -а́я, -о́е. *Шпуравая свідравіна.*

**ШПУРЛЯ́ЦЦА**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца; *незак., чым* (разм.). Тое, што і *кідацца* (у 1 знач.). *Ш. снежкамі.* ‖ *наз.* **шпурля́нне**, -я, *н.*

**ШПУРЛЯ́ЦЬ**, -я́ю, -я́еш, -я́е; *незак., каго-што* і *чым* (разм.). **1.** З сілай кідаць. *Ш. камяні* або *камянямі ў каго-н.* **2.** *перан.* Выдаткоўваць без карысці, марна. *Ш. грошы на вецер.* ‖ *аднакр.* **шпурну́ць**, -ну́, -не́ш, -не́; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. ‖ *наз.* **шпурля́нне**, -я, *н.*

**ШПЯНЁВЫ** *гл.* шпень.

**ШПЯНЁК**, -нька́, *мн.* -нькі́, -нько́ў, *м.* Невялікі шпень, стрыжань. *Спражка са шпяньком.*

**ШРАМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* След на скуры ад раны. *Глыбокі ш. на твары. Шрам на дрэве* (перан.).

**ШРАПНЕ́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* Разрыўны артылерыйскі снарад, начынены круглымі кулямі. ‖ *прым.* **шрапне́льны**, -ая, -ае.

**ШРАЦІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -ці́н, *ж.* Адзін шарык ружэйнага шроту.

**ШРОТ**, -у, *М* шро́це, *м., зб.* Дробныя свінцовыя шарыкі для стральбы з паляўнічай стрэльбы. ‖ *прым.* **шро́тавы**, -ая, -ае.

**ШРО́ТНІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -ніц, *ж.* (спец.). Мяшочак ці каробачка для захоўвання шроту.

**ШРУ́БА**, -ы, *мн.* -ы, шруб, *ж.* Шпень са спіральнай нарэзкай. *Галоўка шрубы.* ‖ *памянш.* **шру́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак, *ж.* ‖ *прым.* **шру́бавы**, -ая, -ае.

**ШРУБАВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (спец.). Тое, што і *шрубарэзны.*

**ШРУБАВА́ЦЬ**, -бу́ю, -бу́еш, -бу́е; -бу́й; -бава́ны; *незак., што.* **1.** Рабіць на чым-н. шрубавую нарэзку. *Ш. стрыжань.* **2.** Укручваць або выкручваць шрубу. **3.** Змацоўваць шрубамі. *Ш. дошкі.* ‖ *наз.* **шрубава́нне**, -я, *н.*

**ШРУБАРЭ́ЗНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які служыць для наразання шрубавай разьбы. *Ш. станок.*

**ШРЫФТ**, -у, *М* -фце, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* Камплект друкарскіх літар пэўнага памеру і формы, а таксама іх адбітак. *Дробны ш.* ‖ *прым.* **шрыфтавы́**, -а́я, -о́е.

**ШТАБ**, -а, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Орган кіравання войскамі, а таксама асобы, якія ўваходзяць у яго. *Генеральны ш. Ш. дывізіі. Ш. палка.* **2.** *перан.* Кіруючы орган чаго-н. *Ш. новабудоўлі.* ‖ *прым.* **штабны́**, -а́я, -о́е (да 1 знач.).

**ШТАБ-...** Першая частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да штаба (у 1 знач.), напр.: *штаб-кватэра, штаб-ротмістр.*

**ШТАБ-АФІЦЭ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У царскай і некаторых замежных арміях: афіцэр у чыне палкоўніка, падпалкоўніка і маёра. ‖ *прым.* **штаб-афіцэ́рскі**, -ая, -ае.

**ШТА́БЕЛЬ**, -я, *мн.* -бялі́ *і* шта́белі, -бялёў *і* шта́беляў, *м.* Правільна складзены рад чаго-н. *Ш. цэглы. Укладваць штабялямі.* ‖ *прым.* **шта́бельны**, -ая, -ае.

**ШТАБІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (разм.). Штабны афіцэр. ‖ *прым.* **штабі́сцкі**, -ая, -ае.

**ШТАБ-КВАТЭ́РА**, -ы, *мн.* -ы, -тэ́р, *ж.* **1.** Месца размяшчэння вайсковага штаба. **2.** *перан.* Галоўнае месца збораў, сходаў якой-н. арганізацыі. *Штаб-кватэра ААН.*

**ШТАБНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *незак., што* і *без дап.* (спец.). Прашываць, прастрочваць што-н. (звычайна на машынцы). *Ш. збрую.* ‖ *зак.* **праштабнава́ць**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны. ‖ *наз.* **штабнава́нне**, -я, *н.*

**ШТАБНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *штабіст.*

**ШТАБ-РО́ТМІСТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У царскай арміі Расіі: афіцэрскі чын у кавалерыі і жандармерыі, роўны штабс-капітану, а таксама асоба, якая мае гэты чын. ‖ *прым.* **штаб-ро́тмістрскі**, -ая, -ае.

**ШТАБС-КАПІТА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У царскай арміі Расіі: афіцэрскі чын у пяхоце, артылерыі і інжынерных войсках, рангам вышэйшы за паручніка і ніжэйшы за капітана, а таксама асоба, якая мае гэты чын. ‖ *прым.* **штабс-капіта́нскі**, -ая, -ае.

**ШТАМП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Інструмент, форма для серыйнай вытворчасці пры дапамозе ціску або штампоўкі розных прадметаў. **2.** Від пячаці, звычайна прамавугольнай, з назвай установы, адрасам і пад., якую ставяць звычайна ў верхняй частцы дзелавой паперы. *Бібліятэчны ш.* **3.** *перан.* Агульнаўжывальны, збіты ўзор, шаблон. *Канцылярскі ш. Мысліць штампамі.* ‖ *прым.* **шта́мпавы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Штампавая сталь.*

**ШТАМПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны; *незак., што.* **1.** Вырабляць формы штампа (у 1 знач.). *Ш. дэталі.* **2.** Ставіць на што-н. штампы (у 2 знач.). **3.** *перан.* Рабіць што-н. хутка, фармальна, па старых гатовых узорах. *Ш. дырэктывы.* ‖ *зак.* **адштампава́ць**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны (да 1 знач.; спец.). ‖ *наз.* **штампава́нне**, -я, *н. і* **штампо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **штампо́вачны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **штампава́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *Штамповачная вытворчасць. Штамповачны цэх. Штампавальны станок.*

**ШТА́НГА**, -і, *ДМ* -нзе, *мн.* -і, штанг *і* -аў, *ж.* **1.** Вялікі металічны стрыжань як частка інструмента, механізма і пад. *Буравая ш.* **2.** Спартыўны снарад — металічны стрыжань, на канцах якога прымацоўваюцца цяжкія здымныя дыскі. *Займацца штангай.* **3.** Перакладзіна, брус футбольных і хакейных варот. ‖ *прым.* **шта́нгавы**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШТАНГІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен, які займаецца практыкаваннямі са штангай (у 2 знач.).

**ШТАНДА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У некаторых арміях: палкавы сцяг у кавалерыйскіх часцях або сцяг як знак дзяржавы ці грамадскай арганізацыі. **2.** У царскай Расіі і некаторых краінах: сцяг кіраўніка дзяржавы (манарха, прэзідэнта), які паднімаецца ў месцы яго знаходжання. **3.** Сцяг (паэт.). ‖ *прым.* **штанда́рны**, -ая, -ае.

**ШТАНЫ́**, -о́ў. Верхняе адзенне, якое пакрывае ногі і ніжнюю частку тулава да пояса. ◊ **Штаны кароткія** *ў каго* (разм., іран.) — не дарос хто-н. да выканання якой-н. справы. ‖ *прым.* **штанны́**, -а́я, -о́е *і* **штано́вы**, -ая, -ае.

**ШТА́ПЕЛЬ**, -ю, *м.* Тканіна са штучнага валакна, блізкага па даўжыні да бавоўнянага або шарсцянога валакна.

**ШТА́ПЕЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які, зроблены са штапелю. *Штапельнае валакно. Штапельная сукенка.*

**ШТАРМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; *незак.* (спец.). Пра судна, яго экіпаж: вытрымліваць шторм. *Мы штармавалі два дні ў адкрытым моры.*

**ШТАРМАВЫ́** *гл.* шторм.

**ШТАРМО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -мо́вак, *ж.* (разм.). Лёгкая куртка з воданепрымальнай тканіны.

**ШТАРМІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -і́ць; *незак.* Пра шторм: быць вельмі неспакойным, бурным. *Чуваць, як штарміць мора. Перастала ш.*

**ШТАТ**[1], -у, *М* шта́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Пастаянны склад супрацоўнікаў якой-н.

установы. *Скарачэнне штатаў. Залічыць у ш.* **2.** звычайна *мн.* Дакумент пра лік і пасады супрацоўнікаў установы і іх функцыі. *Пераглядаць штаты.* ◊ **Належыць па штаце** — пра тое, што адпавядае службоваму, грамадскаму становішчу, заслугам і пад. ‖ *прым.* **шта́тны**, -ая, -ае.

**ШТАТ**[2], -а, *М* шта́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка з унутраным самакіраваннем у ЗША, Аўстраліі, краінах Лацінскай Амерыкі, Індыі.

**ШТАТЫ́Ў**, -ты́ва, *мн.* -ты́вы, -ты́ваў, *м.* Падстаўка для якіх-н. прыбораў. *Ш. колбы. Ш. фотаапарата.* ‖ *прым.* **штаты́ўны**, -ая, -ае.

**ШТО**[1], чаго́, чаму́, чым, па чым, *займ.* **1.** *пыт.* і *адносны.* Указвае, пра які прадмет, рэч, з'яву і пад. ідзе гаворка. *Што там адбылося? Выканай вось што. Што не ў меру, тое ў шкоду. Што вы кажаце?* (ужыв. таксама як выраз здзіўлення з выпадку чаго-н. сказанага). **2.** *пытальны, у знач. вык.* У якім стане, які, як. *Як наша вёска, што суседзі?* **3.** *пыт., у знач. прысл.* Тое, што і *чаму*[2] (у 1 знач.). *Што не заходзіш да нас? Я раздумаў ехаць. — Што так?* **4.** *пыт.* і *адносны.* Тое, што і *колькі* (у 1 знач.). *Што яна варта. Што ёсць духу. Што толку ў гэтым* (гэта значыць няма толку). *Што яму за карысць ад гэтага?* (якая карысць, няма карысці). **5.** *пыт., у знач. прысл.* Навошта? для чаго? *Што нам спрачацца з імі?* **6.** *адносны.* Тое, што і *які* (у 1 знач.). *Хата, што каля лесу.* **7.** *неазнач.* Тое, што і *што-небудзь* (разм.). *Калі што — я прыеду і зробім. Дайце мне з'есці чаго.* **8.** *пыт.* Ужыв. для выражэння пытання, перапытвання, уяўляе сабой сказ у знач.: што ты сказаў? што трэба? што такое? — *Глянь сюды. — Што? Што ты? Ну і што?* ◊ **А што** — рэпліка ў адказ на пытанне ў знач.: чаму, чаго пытаешся. — *Ты хочаш гэта рабіць? — А што?* **З чаго** — чаму, па якой прычыне. *І з чаго ёй дрэнна стала?* **На што ўжо** — уводзіць уступальны сказ. *На што ўжо ён негаваркі, і то разгаварылі.* **Ні за што** — ні ў якім разе. **Ні за што, ні пра што** — 1) дарэмна; 2) без прычыны, падстаў. **Ні з чым** (застацца, пайсці і пад.) — без усяго. **Ні пры чым** — не мае адносін, не вінаваты ў чым-н. *Ён тут ні пры чым.* **Пры чым** — у чым вінаваты, якія адносіны мае. *Пры чым тут мы?* **Ці што** — пабочн. сл., якое выражае няўпэўненасць, сумненне. *Ну, будзем ужо збірацца, ці што?* **Што да чаго** — у чым сутнасць, сэнс чаго-н. *Разбярыся тут, што да чаго.* **Што ж** — рэпліка ў знач.: так, прыходзіцца згадзіцца. *Што ж, няхай будзе так.* **Што за** — у пытанні і вокліч: які. *Што за глупства?! Што за дзяўчына да вас прыехала? Што за страва!* (якая добрая). **Што зробіш!** — рэпліка ў знач.: нічога не зробіш, так ужо будзе. **Што і казаць** — вядома, сапраўды. *Факт, што і казаць, упартая рэч.* **Што рабіць!** — тое, што і што зробіш. **Што там** — рэпліка ў знач.: добра, няхай. **Што ты (вы)?** — выраз здзіўлення, спалоху, пярэчання.

**ШТО**[2], *злуч.* **1.** Далучае даданы сказ да галоўнага. *Крыўдна, што я гэтага не змог зрабіць. Такі шум, што можна аглухнуць. Назбіралі так мала ягад, што і варэнне не зварыш.* **2.** Як, чым, нібы. *Спіць што мёртвы.* **3.** з часціцай «ні» або без яе. Указвае, што сказанае ў галоўным сказе адносіцца да кожнага моманту, месца, да кожнай з'явы і пад., названых у даданым. *Што край, то абычай* (прыказка). **4.** З паўторам — указвае на раўнапраўе, аднолькавасць, роўнасць у адносінах да чаго-н. *Што ён паедзе, што я — адно і тое ж.*

**ШТО...** Першая частка складаных слоў у знач.: які паўтараецца (у кожны прамежак часу, указаны ў другой частцы), напр.: *штовячэрні, штоначны, штосутачны, штохвілінны.*

**ШТОВЕ́ЧАР**, *прысл.* Кожны вечар, кожным вечарам. *Сустракацца ш.*

**ШТОГАДО́ВЫ**, -ая, -ае. Які бывае кожны год, раз у год. *Штогадовая справаздача.*

**ШТОГО́Д**, *прысл.* Кожны год, з году ў год. *Прафсаюзныя камітэты перавыбіраюцца ш.*

**ШТОГО́ДНІ**, -яя, -ае (разм.). Тое, што і *штогадовы. Ш. водпуск.*

**ШТОГО́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Выданне, якое выходзіць раз у год. *Універсітэцкі ш.*

**ШТОДЗЕ́НЬ**, *прысл.* Кожны дзень; з дня ў дзень. *Ш. ідзе дождж.*

**ШТОДЗЁННЫ**, -ая, -ае. **1.** Які бывае кожны дзень. *Штодзённая гімнастыка. Займацца штодзённа* (прысл.). **2.** Звычайны, будзённы. *Штодзённая вопратка.* ‖ *наз.* **штодзённасць**, -і, *ж.*

**ШТОДНЯ́**, *прысл.* **1.** Тое, што і *штодзень. Галіцца ш.* **2.** З кожным днём, з дня на дзень. *Халаднее ш.*

**ШТОЛЕ́ТА**, *прысл.* Кожнае лета, кожным летам. *Ш. адпачываць на поўдні.*

**ШТО́ЛЬНЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Гарызантальная або нахіленая горная выпрацоўка, якая мае непасрэдны выхад на зямную паверхню. ‖ *прым.* **што́льневы**, -ая, -ае.

**ШТОМЕ́СЯЦ**, *прысл.* Кожны месяц. *Праводзіць палявыя доследы ш.*

**ШТОМЕ́СЯЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Выданне, якое выходзіць раз у месяц.

**ШТОМЕ́СЯЧНЫ**, -ая, -ае. Які бывае кожны месяц, раз у месяц. *Ш. часопіс. Штомесячна* (прысл.) *плаціць узносы.*

**ШТО-НЕ́БУДЗЬ**, чаго́-не́будзь, чаму́-не́будзь, *займ. неазнач.* Які-н. прадмет (з'ява, рэч) або усё роўна які прадмет (з'ява, рэч). *Кожны раз што-н. прывозіць. Дай чаго-небудзь з'есці. Раскажы што-н. цікавае.*

**ШТО́НІКІ**, -аў (разм.). Кароткія або невялікія штаны. *Дзіцячыя ш.*

**ШТО-НІШТО́**, чаго́-нічаго́, чаму́-нічаму́, *займ. неазнач.* (разм.). Нешта, сёе-тое. *Пачуць што-н. з чужой размовы.*

**ШТОНО́Ч** *і* **ШТОНО́ЧЫ**, *прысл.* Кожную ноч; кожнай ноччу. *Мучыцца ад бяссонніцы ш. Ш. станавілася святлей: надыходзілі белыя ночы.*

**ШТО́ПАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Стрыжань са шрубавай разьбой для адкаркоўвання бутэлек. **2.** Фігура вышэйшага пілатажу — імклівае падзенне па крутой спіралі (спец.). *Увайсці ў ш.* ‖ *прым.* **што́парны**, -ая, -ае.

**ШТО́ПАРЫЦЬ**, -ру, -рыш, -рыць; *незак.* (спец.). Спускацца штопарам (у 2 знач.).

**ШТО́РА**, -ы, *мн.* -ы, штор, *ж.* Заслона на акно, якую можна падымаць, апускаць або рассоўваць у бакі. *Апусціць, падняць шторы. Рассунуць шторы.* ‖ *памянш.* **што́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* ‖ *прым.* **што́равы**, -ая, -ае *і* **што́рны**, -ая, -ае.

**ШТОРА́З**, *прысл.* Кожны раз; з кожным разам; надта часта. *Ш. чытаючы гэты твор, адкрываеш для сябе ўсё новае і новае. Ш. папраўляць акуляры на носе.*

**ШТОРА́НІЦЫ**, *прысл.* Кожную раніцу, кожнай раніцай. *Паліць у печы ш.*

**ШТОРМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Моцная бура на моры. ‖ *прым.* **штармавы́**, -а́я, -о́е. *Ш. вецер. Штармавое папярэджанне.*

**ШТОСЬ**[1], чаго́сь, чаму́сь, штосць, чымсь, на чымсь, *займ. неазнач.* Тое, што і *штосьці*[1].

**ШТОСЬ**[2], *прысл.* Невядома чаму, невядома з якой прычыны, чамусьці, штосьці[2]. *Ш. сёння сваволіць сэрца.*

**ШТО́СЬЦІ**[1], чаго́сьці, чаму́сьці, што́сьці, чы́мсьці, па чы́мсьці, *займ. неазнач.* Нейкі, невядома які прадмет (з'ява, рэч), нешта. *Ш. непрыемнае. Стукаць па чымсьці драўляным.*

**ШТО́СЬЦІ**[2], *прысл.* Невядома чаму, чамусьці. *Ш. не спіцца. Ш. холадна.*

**ШТОТЫ́ДЗЕНЬ**, *прысл.* Кожны тыдзень, на кожным тыдні. *Ездзіць на дачу ш.*

**ШТОТЫДНЁВІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Выданне, якое выходзіць раз на тыдзень. *Ш. «Літаратура і мастацтва».*

**ШТОТЫДНЁВЫ**, -ая, -ае. Які бывае кожны тыдзень, раз у тыдзень. *Штотыднёвая газета.*

**ШТОФ**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Старая руская мера вадкасці (звычайна віна, гарэлкі), роўная 1,23 л, а таксама бутля такой ёмістасці. ‖ *прым.* **што́фны**, -ая, -ае.

**ШТОФ**[2], -у, *м.* Шчыльная дэкаратыўная шарсцяная або шаўковая тканіна для абіўкі мэблі, для парцьер і пад. ‖ *прым.* **што́фны**, -ая, -ае. *Штофная канапа.*

**ШТОХВІЛІ́ННЫ**, -ая, -ае. Які бывае кожную хвіліну, надзвычай часта, бесперапынна. *Штохвілінныя сігналы. Штохвілінна* (прысл.) *пазіраць у акно.* ‖ *наз.* **штохвілі́ннасць**, -і, *ж.*

**ШТОХВІЛІ́НЫ**, *прысл.* Кожную хвіліну, вельмі часта; з кожнай хвілінай. *Вецер ш. мацнеў.*

**ШТРАФ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Грашовае спагнанне, якое накладваецца ў якасці

пакарання. *Заплаціць ш. Налажыць ш.* || *прым.* **штрафны́**, -а́я, -о́е.

**ШТРАФАВА́ЦЬ**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны; *незак., каго (што).* Накладваць штраф на каго-, што-н. || *зак.* **аштрафава́ць**, -фу́ю, -фу́еш, -фу́е; -фу́й; -фава́ны. || *наз.* **штрафава́нне**, -я, *н.*

**ШТРАФБА́Т**, -а, *М* -ба́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: штрафны батальён. || *прым.* **штрафба́таўскі**, -ая, -ае (разм.).

**ШТРАФНІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Военнаслужачы штрафной часці. **2.** У спорце: ігрок, часова пазбаўлены ўдзелу ў гульні за парушэнне правіл (разм.).

**ШТРАФНЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* штраф. **2.** Які мае адносіны да спагнання за парушэнне якіх-н. правіл. *Ш. ўдар* (у футболе). *Штрафная лава* (у спорце: для тых, хто часова выдалены з поля за парушэнне правіл гульні). *Ш. батальён, штрафная часць* (з тых, хто правініўся).

**ШТРЫ́ПКА**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак, *ж.* Тасьма, якая прышываецца знізу да калашыны штаноў і ахоплівае ступню знізу. || *прым.* **штры́пачны**, -ая, -ае.

**ШТРЫХ**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Тонкая рыса, лінія. *Ш. на чарцяжы.* **2.** *перан.* Характэрны момант, дэталь, падрабязнасць. *Штрыхі з біяграфіі.*

**ШТРЫХАВА́ЦЬ**, -рыху́ю, -рыху́еш, -рыху́е; -рыху́й; -рыхава́ны; *незак., што.* Наносіць штрыхі (у 1 знач.) на што-н. *Ш. карту.* || *зак.* **заштрыхава́ць**, -рыху́ю, -рыху́еш, -рыху́е; -рыху́й; -рыхава́ны. || *наз.* **штрыхо́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **штрыхава́нне**, -я, *н.*

**ШТРЫХАВЫ́**, -а́я, -о́е. Выкананы штрыхамі. *Ш. малюнак.*

**ШТРЭЙКБРЭ́ХЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які ў час забастоўкі, здраджвае інтарэсам забастоўшчыкаў. || *прым.* **штрэйкбрэ́херскі**, -ая, -ае.

**ШТРЭЙКБРЭ́ХЕРСТВА**, -а, *н.* Дзеянні штрэйкбрэхераў, накіраваныя на зрыў забастоўкі.

**ШТРЭК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Гарызантальная падземная горная выпрацоўка, якая не мае непасрэднага выхаду на паверхню. || *прым.* **штрэ́кавы**, -ая, -ае.

**ШТУДЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *незак., каго-што* (кніжн.). Настойліва, старанна вывучаць. *Ш. фізіку.* || *зак.* **праштудзі́раваць**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны. || *наз.* **штудзі́раванне**, -я, *н.*

**ШТУ́КА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, штук, *ж.* **1.** *чаго.* Цэлы, некрануты, непачаты яшчэ прадмет, выраб (звычайна пра рулон тканіны). *Ш. сукна, палатна.* **2.** Асобны прадмет з шэрага аднародных. *Некалькі штук яблыкаў.* **3.** Наогул пра рэч, прадмет, якую-н. з'яву ці чалавека (разм., жарт. або неадабр.). *Набыты вопыт — гэта добрая ш. Адразу відаць, што ён за ш.* **4.** *перан.* Незвычайны ўчынак, выхадка, выдумка (разм.). *Кінь свае каварныя штукі! Вось дык ш.!* || *памянш.* **шту́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.*

**ШТУКАВА́ЦЬ**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны; *незак., што.* **1.** Забіваючы, закладаючы, закрываць наглуха. *Ш. прабоіны.* **2.** Цыраваць, сшываць нябачным швом (спец.). *Ш. шоўк.* **3.** *перан.* і *без дап.* Выдумляць, майстраваць, вынаходзіць. *Што ты тут узяўся ш.?* || *зак.* **заштукава́ць**, -ку́ю, -ку́еш, -ку́е; -ку́й; -кава́ны (да 1 і 2 знач.). || *наз.* **штуко́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж. і* **штукава́нне**, -я, *н.*

**ШТУКА́Р**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Артыст, які паказвае фокусы. **2.** Той, хто вырабляе штукі (у 4 знач.), выдумшчык, жартаўнік. || *ж.* **штука́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. || *прым.* **штука́рскі**, -ая, -ае.

**ШТУКО́ВІНА**, -ы, *мн.* -ы, -він, *ж.* (разм.). Пра што-н., што выклікае здзіўленне, цікаўнасць ці якую-н. ацэнку. *Што гэта ў цябе за ш. ў руках? Такое падарожжа — цікавая ш.*

**ШТУРВА́Л**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рулявое кола на судне, самалёце, камбайне. *Стаць за ш. карабля.* || *прым.* **штурва́льны**, -ая, -ае. *Ш. трос.*

**ШТУРВА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* штурвал. **2.** *у знач. наз.* **штурва́льны**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Той, хто стаіць за штурвалам на судне, камбайне і пад.

**ШТУРМ**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыступ, рашучая атака ўмацавання, крэпасці. *Ісці на ш.* (таксама перан.). || *прым.* **штурмавы́**, -а́я, -о́е. *Ш. ўзвод. Штурмавая авіяцыя.*

**ШТУРМАВА́ЦЬ**, -му́ю, -му́еш, -му́е; -му́й; -мава́ны; *незак., каго-што.* Рабіць штурм чаго-н. *Ш. варожыя ўмацаванні.* || *наз.* **штурмава́нне**, -я, *н.*

**ШТУРМАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Ваенны самалёт для атакі наземных цэлей з невялікай вышыні. **2.** Лётчык такога самалёта.

**ШТУРМАВЫ́**, -а́я, -о́е. **1.** *гл.* штурм. **2.** У выразе: **штурмавая авіяцыя** — франтавая авіяцыя, прызначаная для штурмоўкі.

**ШТУ́РМАН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па ваджэнні суднаў, лятальных апаратаў. || *прым.* **шту́рманскі**, -ая, -ае.

**ШТУРМАЎШЧЫ́НА**, -ы, *ж.* (неадабр.). Паспешлівая праца з мэтай нагнаць упушчэнне, якая праводзіцца пры парушэнні планавасці ў арганізацыі працэсу. *Працаваць без штурмаўшчыны.*

**ШТУРМО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* Паветраная атака з невялікай вышыні. *Ш. варожага аэрадрома.*

**ШТУРХ**, *у знач. вык.* (разм.). Тое, што і *штурхануў. Раптам нехта ш. у бок.*

**ШТУРХАНЕ́Ц**, -нца́, *мн.* -нцы́, -нцо́ў, *м.* і **ШТУРХА́ЛЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* (разм.). Кароткі, моцны, рэзкі ўдар. *Надаваць штурханцоў (штурхалёў).*

**ШТУРХАНІ́НА**, -ы, *ж.* Цісканіна, сумятня ў натоўпе, цеснаце. *Пачалася ш. ў раздзявальні.*

**ШТУ́РХАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* **1.** Штурхаць каго-н. іншага або адзін аднаго. *Ш. ў натоўпе.* **2.** *перан.* Быць дзе-н. у цеснаце, таўкатні (разм.). *Ш. ў аўтобусе.* **3.** *у што.* Штурхаць што-н., імкнучыся пранікнуць куды-н. (разм.). *Ш. ў дзверы.* **4.** Знаходзіцца, бадзяцца дзе-н. без асобага занятку, без мэты (разм.). *Ш. па базары.* || *наз.* **шту́рханне**, -я, *н.*

**ШТУ́РХАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *незак.* **1.** *каго-што.* Рухаць ад сябе, кранацца рэзкім рухам, кароткім ударам. *Ш. у спіну сяброўку. Ш. тачку.* **2.** Трымаючы на ўзроўні плячэй, рэзкім моцным рухам паднімаць над сабой (штангу, гіру) або штуршком кідаць наперад (звычайна ядро; спец.). *Ш. ядро. Ш. штангу.* **2.** *перан., каго (што).* Прымушаць да чаго-н., садзейнічаць сваім умяшаннем развіццю чаго-н. *Ш. каго-н. на нядобры ўчынак.* || *зак.* **штурхану́ць**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́ *і* **штурхну́ць**, -ну́, -нёш, -нё; -нём, -няце́, -ну́ць; -ні́. || *наз.* **шту́рханне**, -я, *н.* (да 1 знач.).

**ШТУРХА́Ч**, -а́, *мн.* -ы́, -о́ў, *м.* **1.** Дэталь, прыстасаванне для падштурхоўвання чаго-н. (спец.). *Ш. клапана.* **2.** Дапаможны паравоз у хвасце цягніка або самаходнае судна, якое штурханнем рухае баржы (спец.). **3.** *перан.* Чалавек, якому даручана падштурхнуць, паскорыць патрэбную ў дадзены момант справу (разм.).

**ШТУРХЕ́ЛЬ** (разм.). **1.** -хля́, *мн.* -хлі́, -хлёў, *м.* Тое, што і *штуршок* (у 1 знач.). *Даць ш. у грудзі.* **2.** *у знач. вык.* Тое, што і *штурхнуў. Ш. у бок нагой.*

**ШТУРШО́К**, -шка́, *мн.* -шкі́, -шко́ў, *м.* **1.** Кароткі, рэзкі дотык або ўдар ад сябе. *Ш. у бок.* **2.** Рэзкае хістанне ў выніку ўдару, рыўка і пад. *Ледзь не ўпаў з лаўкі ад рэзкага штуршка цягніка. Падземныя штуршкі.* **3.** У спорце: рух, якім штурхаюць што-н. (напр. ядро, штангу і пад.). *Ш. левай рукой.* **4.** *перан.* Тое, што выклікае што-н. або пабуджае да чаго-н. (разм.). *Ш. да вывучэння замежнай мовы.* || *прым.* **штуршко́вы**, -ая, -ае (да 1—3 знач.; спец.).

**ШТУ́ЧНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Ненатуральны, зроблены накшталт сапраўднага. *Штучнае валакно. Ш. адбор. Штучнае дыханне* (сістэма прыёмаў, якія аднаўляюць дыханне хворага, пацярпелага). **2.** Роблены, прытворны, няшчыры. *Штучная ветлівасць.* || *наз.* **шту́чнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ШТУ́ЧНЫ**[2], -ая, -ае. **1.** Які ўяўляе сабой асобную рэч, які нельга ўзважыць або адмераць. *Ш. тавар. Ш. аддзел магазіна* (для гандлю таварамі паштучна). **2.** Які праводзіцца, робіцца здзельна, за кожную штуку. *Штучная аплата.*

**ШТЫК**[1], -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Колючая зброя, якая насаджваецца на канец ствала вінтоўкі, ружжа. *Клінковы ш. Ісці ў штыкі* (пра рукапашны бой). **2.** Узброены баец, салдат (спец.). *У роце засталося сорак штыкоў* (гэта значыць стралкоў-пехацінцаў). ◊ **У штыкі сустракаць (прыняць)** *каго-н.* — крайне варожа. **Трымацца на штыках** (перан.) — сілай войск. **Як штык** (разм.) — зусім дакладна, безумоўна. *Каб з'явіўся заўтра сюды як ш.* || *прым.* **штыкавы́**, -а́я, -о́е.

**ШТЫК**[2], -á, *мн.* -í, -óў, *м.* (спец.). Пласт зямлі на глыбіню палатна рыдлёўкі. *Глыбінёй у два штыкі.*

**ШТЫКАВÁЦЬ**, -кýю, -кýеш, -кýе; -кýй; -кавáны; *незак., што* (спец.). Перакопваць на глыбіню, якая захопліваецца рыдлёўкай. *Ш. глебу.* ‖ *наз.* **штыкавáнне**, -я, *н. і* **штыкóўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.*

**ШТЫКÉТНІК**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у, *зб.* Вузкія драўляныя планкі, з якіх робяць плот. **2.** -а, *мн.* -і, -аў. Плот, агароджа з такіх планак.

**ШТЫКÉТЫ**, -аў, *адз.* штыкéт, -а *і* -у, *М* -кéце, *м.* Тое, што і *штыкетнік.*

**ШТЫКÉЦІНА**, -ы, *мн.* -ы, -цін, *ж.* (разм.). Адна планка штыкетніку.

**ШТЫЛÉТ**, -а, *М* -лéце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Невялікі кінжал з тонкім трохгранным лязом.

**ШТЫЛЬ**[1], -ю, *м.* Поўнае зацішша на моры. ‖ *прым.* **штылявы́**, -áя, -óе.

**ШТЫЛЬ**[2], -я́, *мн.* -í, -ёў, *м.* **1.** Востры стрыжань. **2.** Тое, што і *шып*[1] (спец.).

**ШТЫФТ**, -а, *М* -фце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Металічны стрыжанёк нерухомага злучэння чаго-н. (напр. дэталей машыны). ‖ *прым.* **шты́фтавы**, -ая, -ае.

**ШТЫХ**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* Тое, што і *штык.*

**ШТЭ́МПЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Від пячаткі з выпуклым адбіткам або надпісам, а таксама адбітак, зроблены такой пячаткай. *Паштовы ш.* ‖ *прым.* **штэ́мпельны**, -ая, -ае.

**ШТЭМПЕЛЯВÁЦЬ**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лявáны; *незак., што.* Ставіць штэмпель на што-н. ‖ *зак.* **заштэмпелявáць**, -лю́ю, -лю́еш, -лю́е; -лю́й; -лявáны. ‖ *наз.* **штэмпелявáнне**, -я, *н.*

**ШТЭ́ПСЕЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Прыстасаванне ў выглядзе металічнай вілкі ў пластмасавым корпусе для падключэння ў электрычную сетку электрычных прыбораў (тэлевізараў, лямп і пад.). ‖ *прым.* **штэ́псельны**, -ая, -ае.

**ШУ́БА**, -ы, *мн.* -ы, шуб, *ж.* **1.** Зімовае верхняе адзенне з футра. *Лісіная ш.* **2.** Поўсцевае покрыва некаторых жывёл. *Ш. вавёркі.* ‖ *прым.* **шу́бны**, -ая, -ае.

**ШУГÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Гарэць яркім полымем, палаць; вырывацца адкуль-н. (пра полымя і пад.); палымнець. *Шугаў пажар. Шугае агонь. З акон шугала полымя. Над лесам шугае зарыва.* **2.** *перан.* Праяўляцца, праходзіць бурна, імкліва. *На дварэ шугала вясна.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Прыліваць да твару (пра кроў). *Кроў шугае ў твар.* **4.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Парывіста дзьмуць, урывацца куды-н. (пра дым, пару і пад.). *Цяпло шугае ў твар.* **5.** *каго-што.* Падкідаць на руках, гайдаць, гушкаць. *Ш. імянінніка.* **6.** Рэзка падымацца ўгору, узлятаць. *Птушкі шугаюць угару. Велічныя сосны шугаюць у неба* (перан.: высяцца). **7.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Добра расці, буяць. *Шугае расліннасць.* ‖ *аднакр.* **шуганýць**, -нý, -нéш, -нé; -нём, -няцé, -нýць; -ní. ‖ *наз.* **шугáнне**, -я, *н.*

**ШУКÁЕМЫ**, -ая, -ае. У матэматыцы: які неабходна вызначыць, устанавіць. *Шукаемая велічыня. Знайсці шукаемае* (наз.).

**ШУКÁЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Чалавек, заняты пошукам, здабываннем чаго-н. *Ш. жэньшэню. Шукальнікі алмазаў. Ш. прыгод.* **2.** Прыстасаванне ў розных прыборах, якое аблягчае знаходжанне якога-н. прадмета, аб'екта (спец.). *Ш. у фотаапараце.* ‖ *ж.* **шукáльніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 1 знач.). ‖ *прым.* **шукáльніцкі**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШУКÁЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які выказвае пошук каго-, чаго-н. *Шукальныя рухі.* **2.** Які імкнецца здабыць чыю-н. прыхільнасць, спагаду. *Ш. погляд.*

**ШУКÁННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* шукаць. **2.** *мн.* -і, -яў. Імкненне да чаго-н. новага, старанні знайсці новыя шляхі (у навуцы, мастацтве). *Творчыя шуканні.*

**ШУКÁНЫ**, -ая, -ае. Якога шукаюць, які неабходна адшукаць. *Знайсці шуканую кнігу.*

**ШУКÁЦЬ**, -áю, -áеш, -áе; *незак.* **1.** *каго-што.* Старацца знайсці або выявіць. *Ш. у поцемках клямку. Ш. неабходную кнігу. Ш. праўду. Ш. вачамі каго-н.* (старацца ўбачыць). **2.** *каго-што* і *чаго.* Старацца атрымаць. *Ш. заступніцтва. Ш. работу* або *работы. Ш. дапамогі.* **3.** *без дап.* Імкнуцца да новага (у навуцы, мастацтве). ‖ *наз.* **шукáнне**, -я, *н.* (да 1 і 2 знач.).

**ШУ́ЛА**, -а *і* **ШУЛÓ**, -á, *мн.* шýлы, шул *і* шýлаў, *н.* **1.** Бервяно ці тоўсты брус з высечанымі пазамі, замацаваны ў чым-н. вертыкальна. *Хата на шулах, без вуглоў.* **2.** Слуп ці брус, на які падвешваецца створка варот. *Навесіць вароты на шулы.*

**ШУ́ЛЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які ў картачнай гульні выкарыстоўвае махлярскія прыёмы, а таксама (перан.) увогуле махляр. ‖ *прым.* **шу́лерскі**, -ая, -ае. *Ш. прыём* (таксама перан.: махлярскі, несумленны).

**ШУ́ЛЕРСТВА**, -а, *н.* Махлярская гульня, прыёмы шулера.

**ШУМ**[1], -у, *м.* **1.** Гукі, якія зліліся ў громкае і нязладжанае гучанне. *Ш. прыбою. Ш. матораў. Без шуму перамяшчацца. Узняўся ш. Ш. у зале.* **2.** *перан.* Ажыўленае абмеркаванне, выкліканае павышаным інтарэсам да чаго-н. *Фільм выклікаў ш.* **3.** Гук з няясвай танальнасцю (спец.). *Шумы ў сэрцы.* **4.** Сварка, крыкі, гучнае выражэнне незадавальнення. *Што там за ш. у суседзяў? Чаго ўзнялі ш., супакойцеся!* ‖ *прым.* **шумавы́**, -áя, -óе (да 1 знач.).

**ШУМ**[2], -у, *м.* (разм.). Пеністы налёт на паверхні супу і пад. пры кіпенні, а таксама пена на сырадоі.

**ШУМАВÍК**, -á, *мн.* -í, -óў, *м.* **1.** Работнік тэатра, кіно, які стварае шумавыя эфекты. **2.** Музыкант, які іграе на шумавых інструментах.

**ШУМАВЫ́**, -áя, -óе (спец.). **1.** *гл.* шум[1]. **2.** Які ўтварае громкія рознахарактарныя гукі. *Шумавыя музычныя інструменты* (трашчоткі, лыжкі, талеркі, званочкі, кастаньеты і пад.). *Ш. аркестр* (які складаецца з ударных і шумавых інструментаў). *Шумавое афармленне радыёперадачы.*

**ШУМÉЦЬ**[1], -млю́, -міш, -міць; -мім, -міцé, -мя́ць; -мí; *незак.* **1.** Утвараць, рабіць шум (у 1 знач.). *Шуміць бор. Шуміць дождж. Шуміць у галаве* (няясна ў думках ад стомленасці, моцнага перажывання, ап'янення). *У вушах шуміць* (пра слыхавое раздражненне). **2.** Гучна выражаць незадаволенасць, сварыцца, крычаць. *Няма чаго ш. з-за дробязі.* **3.** Ажыўлена абмяркоўваць што-н., рабіць прадметам усеагульнай увагі. *Ш. пра свае дасягненні.*

**ШУМÉЦЬ**[2], 1 і 2 ас. не ўжыв., -міць; *незак.* Узнімацца пенай, пеніцца. *Піва шуміць.*

**ШУМÍХА**, -і, *ДМ* -íсе, *ж.* (разм., неадабр.). Залішне ажыўленае абмеркаванне чаго-н. (часцей падзеі, звычайна з мэтай прыцягнуць асаблівую ўвагу да чаго-н.). *Узняць шуміху вакол чаго-н.*

**ШУМЛÍВЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Схільны шумець, утвараць шум[1] (у 1 знач.). *Шумлівыя дзеці.* **2.** Які суправаджаецца шумам, ажыўленнем, напоўнены шумам[1]. *Шумлівая гульня. Шумлівая вуліца.* ‖ *наз.* **шумлíвасць**, -і, *ж.*

**ШУМЛÍВЫ**[2], -ая, -ае. Які мае пену, пеністы. *Ш. напітак.*

**ШУ́МНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Які стварае шум[1] (у 1 знач.); гучны. *Ш. струмень. Шумная размова.* **2.** Такі, дзе многа шуму[1] (у 1 знач.), надта ажыўлены. *Шумная аўдыторыя.* **3.** *перан.* Які выклікае шум[1] (у 2 знач.), сенсацыю. *Ш. поспех.* **4.** Які з'яўляецца шумам[1] (у 3 знач.), утвараецца пры дапамозе шуму[1] (спец.). *Шумныя гукі.* ‖ *наз.* **шýмнасць**, -і, *ж.*

**ШУ́МНЫ**[2], -ая, -ае. Які ўтварае на сваёй паверхні пену, пеністы. *Ш. напітак.*

**ШУМÓК**, -мкý, *м.* (разм.). Слабы шум[1] (у 1 і 3 знач.). *Па зале пайшоў ш. Ш. у сэрцы.* ◊ **Пад шумок** (разм.) — незаўважна для іншых; маскіруючыся, прыкрываючыся чым-н. *Уцячы адкуль-н. пад ш.*

**ШУМÓЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -мóвак, *ж.* Вялікая лыжка з частымі дзіркамі для здымання шуму[2], накіпу, для даставання мяса з супу і пад.

**ШУ́НУЦЬ**, -ну, -неш, -не; шунь; *зак.* **1.** Раптам паліцца, хлынуць, уварвацца ў што-н. *Шунула вада. У пакой шунула свежае паветра.* **2.** *перан.* Пайсці масай (пра людзей); паступіць у вялікай колькасці. *Натоўп шунуў. Заказы шунулі.*

**ШУРАВÁЦЬ**, -рýю, -рýеш, -рýе; -рýй; -равáны; *незак.* **1.** *што.* Перамешваць у топцы палаючае паліва (спец.). **2.** *перан.* Дзейнічаць, рабіць што-н. хутка, энергічна (разм.). ‖ *наз.* **шуравáнне**, -я, *н. і* **шурóўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **шурóвачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ШУРПА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Нягладкі, з невялікімі няроўнасцямі. *Шурпатыя дошкі.* **2.** *перан.* Недапрацаваны, з хібамі, недахопамі. *Ш. стыль.* ‖ *наз.* **шурпа́тасць**, -і, *ж.*

**ШУРПА́ЦЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *незак. і* **ШУРПА́ЦІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *незак.* Станавіцца шурпатым. *Скура шурпацее* або *шурпаціцца.*

**ШУРПА́ЦІЦЬ**, -па́чу, -па́ціш, -па́ціць; *незак., што.* Рабіць шурпатым. *Раствор шурпаціць скуру пальцаў.*

**ШУРФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Неглыбокая вертыкальная горная выпрацоўка для разведвання выкапняў, для ўзрыўных работ.

**ШУ́СНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** Шмыгнуць, кінуцца куды-н.; хутка залезці куды-н., схавацца дзе-н. *Ш. за дзверы. Ш. у ложак.* **2.** Зваліцца адкуль-н., нечакана праваліцца куды-н. *Ш. у адхон. Ш. пад лёд.* **3.** Імкліва ўзняцца, узляцець уверх. *Шуснула чарада птушак.* **4.** З сілай выліць што-н.; раптам паліцца, пасыпацца. *Ш. памыйную ваду ў баразну. Шуснуў дождж.* **5.** Утварыць лёгкі шум, шолах. *Шуснула галінка.* **6.** *што.* З сілай высыпаць. *Ш. лапату пяску на агонь.*

**ШУ́СТРЫ**, -ая, -ае. Жвавы, імклівы, рухавы; бойкі. *Ш. хлопчык.* ‖ *наз.* **шу́страсць**, -і, *ж.*

**ШУСЬ**, *у знач. вык.* (разм.). Тое, што і *шуснуць. Свіння ш. у вароты.*

**ШУ́ФЕЛЬ**, -фля, *мн.* -флі, -фляў, *м.* Шырокая і глыбокая лапата для перасыпання сыпучых рэчываў. *Перакідваць збожжа шуфлямі.* ‖ *памянш.* **шу́флік**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* ‖ *прым.* **шу́фельны**, -ая, -ае.

**ШУФЛЯВА́ЦЬ**, -люю, -люеш, -люе; -лю́й; -ляваны; *незак., што.* Зграбаць, ссыпаць, перасыпаць і пад. шуфлем. *Ш. вугаль.* ‖ *наз.* **шуфлява́нне**, -я, *н.*

**ШУФЛЯ́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ля́д, *ж.* **1.** Скрынка з невысокімі сценкамі і дном, якая ўрабляецца ў ніжнюю частку шафы, у стол і служыць ёмішчам розных рэчаў. *Высунуць шуфляду з шафы.* **2.** Збітыя ў выглядзе прамавугольніка дошкі, змешчаныя ў аконным праёме, унутры якіх замацоўваюць раму (спец.). ‖ *прым.* **шуфля́дны**, -ая, -ае.

**ШУ́ХНУЦЬ**, -ну, -неш, -не; -ні; *зак.* (разм.). **1.** Адным прыёмам зрабіць што-н. *Ш. вады на агонь. Шухнуў вобземлю* (паваліўся). **2.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Хутка абваліцца, спаўзці, з'ехаць уніз. *Зямля шухнула ў яму.* **3.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Нечакана настаць, надысці. *Шухнула пацяпленне.*

**ШУШУ́КАЦЦА**, -аюся, -аешся, -аецца; *незак., з кім і без дап.* (разм.). Шаптацца, гаварыць адзін з адным па сакрэце. *Ш. ў кутку.* ‖ *наз.* **шушу́канне**, -я, *н.*

**ШУШУ́КАЦЬ**, -аю, -аеш, -ае; *зак.* (разм.). Шаптаць, гаварыць па сакрэце. ‖ *наз.* **шушу́канне**, -я, *н.*

**ШХЕ́РЫ**, -аў. Скалы і невялікія скалістыя астравы каля марскіх берагоў, зрэзаных фіёрдамі. ‖ *прым.* **шхе́рны**, -ая, -ае.

**ШХУ́НА**, -ы, *мн.* -ы, шхун, *ж.* Марское судна, якое мае дзве або некалькі мачтаў з касымі парусамі.

**ШЧАБЯТА́ЦЬ**, -бячу́, -бе́чаш, -бе́ча; -бе́чам, -бе́чаце, -бе́чуць; -бячы́; *незак.* **1.** (*1 і 2 ас. не ўжыв.*). Спяваць (пра ластавак, шчыглоў і некаторых птушак). **2.** *перан.* Гаварыць хутка, безупынна (пра дзяцей, жанчын; разм., жарт.). ‖ *наз.* **шчэ́бет**, -у, *М* -беце (да 1 знач.) *і* **шчабята́нне**, -я, *н.*

**ШЧАБЯТУ́ХА**, -і, *ДМ* -ту́се, *мн.* -і, -ту́х, *ж.* (разм.). **1.** Птушка, якая безупынна шчабеча. *Ластаўка-ш.* **2.** *перан.* Пра дзяўчынку, жанчыну, якія няспынна гавораць (разм., жарт.).

**ШЧАДРЭ́Ц**, -раца́, *мн.* -рацы́, -рацо́ў, *м. і* **ШЧАДРО́ЎКІ**, -ро́вак (разм.). Даўні звычай адзначаць вечар напярэдадні Новага года, сам гэты вечар і песня, якая спяваецца ў гэты вечар. ‖ *прым.* **шчадрэ́цкі**, -ая, -ае *і* **шчадро́ўскі**, -ая, -ае.

**ШЧАКА́**, -і́, *ДМ* шчацэ́, *мн.* шчо́кі *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) шчакі́, шчок, шчака́х, *ж.* **1.** Бакавая частка твару ад скулы да ніжняй сківіцы. *Чырвоныя шчокі. Пацалаваць у шчаку.* **2.** Бакавая плоская частка чаго-н. (спец.). *Ш. сякеры.* ‖ *памянш.* **шчо́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **шчо́чны**, -ая, -ае (спец.). *Шчочная мышца.*

**ШЧАКА́СТЫ**, -ая, -ае (разм.). Які мае тоўстыя, пульхныя шчокі (у 1 знач.). *Ш. хлопец.* ‖ *наз.* **шчака́стасць**, -і, *ж.*

**ШЧАМІ́ЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., шчэ́міць; *незак., што.* Сціскаць што-н. паміж чым-н. *Перавясла шчэміць руку.*

**ШЧАНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., шчэ́ніцца; *незак.* Раджаць (пра сабаку, ваўчыцу, лісу і некаторых іншых жывёл). ‖ *зак.* **ашчані́цца**, ашчэ́ніцца. ‖ *наз.* **шчане́нне**, -я, *н.*

**ШЧАНЮ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Тое, што і *шчаня.* **2.** *перан.* Пра маладога, неспрактыкаванага чалавека і як лаянка (разм.). *Як ты размаўляеш са старэйшымі, ш.!*

**ШЧАНЯ́** *і* **ШЧАНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня сабакі, а таксама ваўчыцы, лісы і пад., а таксама (разм., груб.) пра дзіця. ‖ *прым.* **шчаня́чы**, -ая, -ае.

**ШЧАПА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак., што.* Адколваць тонкімі слаямі (дрэва). *Ш. лучыну.* ‖ *наз.* **шчапа́нне**, -я, *н.* ‖ *прым.* **шчапа́льны**, -ая, -ае (спец.).

**ШЧАРБА́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Са шчарбінамі, шчарбінай. *Ш. комін. Ш. рот. Шчарбатае дзіця.* **2.** *перан.* Несапраўдны; няпоўны, аднабокі. *Шчарбатая праўда.* ‖ *наз.* **шчарба́тасць**, -і, *ж.*

**ШЧАРБІ́НА**, -ы, *мн.* -ы, -бі́н, *ж.* **1.** Пустата паміж зубамі на месцы адсутнага зуба. **2.** Зазубрына, няроўнасць у выглядзе маленькай ямкі. ‖ *памянш.* **шчарбі́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

**ШЧАРБІ́ЦЬ**, шчарблю́, шчэ́рбіш, шчэ́рбіць; шчэ́рблены; *незак., што.* Рабіць шчарбіны на чым-н. *Ш. нож.* ‖ *наз.* **шчарбле́нне**, -я, *н.*

**ШЧАСЛІ́ВЕЦ**, -лі́ўца, *мн.* -лі́ўцы, -лі́ўцаў, *м. і* (разм.) **ШЧАСЛІ́ЎЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Шчаслівы чалавек, той, каму шанцуе. ‖ *ж.* **шчаслі́ўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, -лі́вак.

**ШЧАСЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. **1.** Поўны шчасця, якому спрыяе шчасце, удача, поспех, які выражае шчасце. *Шчаслівае дзяцінства. Шчаслівая ўсмешка. Ш. ігрок* (якому шанцуе ў гульні). **2.** Які прыносіць шчасце, удачу. *Ш. білет. У яго шчаслівая рука* (гаворыцца пра чалавека, чые дзеянні, пачынанні прыносяць удачу). **3.** Добры, удалы. *Шчаслівай дарогі!* (развітальнае пажаданне таму, хто ад'язджае). *Шчаслівая ідэя. Шчасліва* (прысл.) *пазбавіцца ад чаго-н.* (удачна вызваліцца ад чаго-н. непрыемнага).

**ШЧА́СНЫ**, -ая, -ае (разм.). Тое, што і *шчаслівы.*

**ШЧА́СЦЕ**, -я, *н.* **1.** Стан і пачуццё поўнай, найвялікшай задаволенасці. *Сямейнае ш. Іх шчасцю не было канца.* **2.** Поспех, удача. *Мне выпала ш. быць знаёмым з тым чалавекам. Яго ш., былі побач людзі, выратавалі* (у знач. вык.: яму пашанцавала). ◊ **На шчасце** — 1) каб былі поспех, удача ў каго-н., каб шанцавала каму-н. (даць, зрабіць, сказаць што-н.); 2) *у знач. пабочн. сл.* выражае задавальненне з выпадку чаго-н.

**ШЧА́СЦІЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іць; *безас.; незак.* Шанцаваць. *Яму заўсёды шчасціла.* ‖ *зак.* **пашча́сціць**, -іць.

**ШЧА́ЎЕ**, -я, *н.* Травяністая і паўкуставая расліна сямейства драсёнавых з прадаўгаватым ядомым лісцем кіслага смаку, а таксама страва, прыгатаваная з лісця гэтай расліны. *Сакавітае ш. Сёрбаць ш.* ‖ *прым.* **шча́ўевы**, -ая, -ае. *Шчаўевая кіслата.*

**ШЧАЎЧО́К**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* **1.** Рэзкі адрывісты гук, які ўтвараецца пры сутыкненні, рабоце механізма і пад. *Ш. затвора вінтоўкі.* **2.** Тое, што і *пстрычка.*

**ШЧАЦІ́НІСТЫ**, -ая, -ае. **1.** Пакрыты густым шчаціннем, густа парослы жорсткімі валасамі. *Ш. хіб. Ш. твар.* **2.** Жорсткі, які нагадвае шчаціннe (пра валасы, поўсць). *Шчаціністыя вусы.* ‖ *наз.* **шчаці́ністасць**, -і, *ж.*

**ШЧАЦІ́НІЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -іцца; *незак.* Падымацца ўгору, уставаць тарчма. *Шчаціняцца валасы на няголеным твары. На паляне шчацініцца сівец.*

**ШЧАЦІ́НІЦЬ**, -ню, -ніш, -ніць; *незак., што.* Падымаць угору, натапырваць (поўсць, шчацінне і пад.). *Кошка шчацініць поўсць. Вецер шчацініў салому на страсе* (перан.).

**ШЧАЦІ́НКА**, -і, *ДМ* -нцы, *ж.* **1.** *гл.* шчацінне. **2.** *мн.* -і, -нак. Кароткі жорсткі волас.

**ШЧАЦІ́ННЕ**, -я, *н., зб.* **1.** Жорсткая прамая шэрсць у некаторых жывёл. *Чорнае ш. дзіка.* **2.** Кароткія жорсткія валасы на нядоленым твары (разм.). *Ш. пакрыла*

**ЭКСКАВА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Землярыйная машына для вымання, перамяшчэння і пагрузкі на транспарт зямлі, пяску, камення і пад. ‖ *прым.* **экскава́тарны**, -ая, -ае.

**ЭКСКАВА́ТАРШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Той, хто працуе на экскаватары. ‖ *ж.* **экскава́таршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **экскава́таршчыцкі**, -ая, -ае.

**ЭКСКРЭМЕ́НТЫ**, -аў (спец.). Пераўтраўленая ежа ў выглядзе калу, мачы.

**Э́КСКУРС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Адступленне ад галоўнай тэмы для падрабязнага высвятлення пабочнага пытання. *Э. у гісторыю роднага краю.*

**ЭКСКУРСАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст, які вядзе экскурсію і дае неабходныя тлумачэнні. ‖ *ж.* **экскурсаво́дка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак (разм.). ‖ *прым.* **экскурсаво́дчы**, -ая, -ае.

**ЭКСКУРСА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Удзельнік экскурсіі. ‖ *ж.* **экскурса́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **экскурса́нцкі**, -ая, -ае.

**ЭКСКУ́РСІЯ**, -і, *мн.* -і, -сій, *ж.* **1.** Паездка (калектыўная ці індывідуальная) куды-н., наведванне чаго-н. з навуковай, адукацыйнай ці іншай мэтай. *Э. ў музей. Паехаць на экскурсію ў Мінск.* **2.** Група ўдзельнікаў такой паездкі, такога наведвання (разм.). ‖ *прым.* **экскурсійны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Э. аўтобус. Э. сезон. Экскурсійнае бюро.*

**ЭКСЛІ́БРЫС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пamastацку аформлены знак, які паказвае на прыналежнасць кнігі ўладальніку (звычайна ў выглядзе пячаткі, наклейкі і пад.). ‖ *прым.* **экслі́брысны**, -ая, -ае.

**ЭКСПАЗІ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Размяшчэнне якіх-н. экспанатаў у пэўным парадку для агляду. *Э. твораў мастака.* **2.** Уступная частка літаратурнага ці музычнага твора, у якой выкладаюцца матывы і абставіны, што папярэднічаюць развіццю сюжэта (спец.). ‖ *прым.* **экспазіцы́йны**, -ая, -ае.

**ЭКСПАНАВА́ЦЬ**, -ну́ю, -ну́еш, -ну́е; -ну́й; -нава́ны; *зак.* і *незак.*, *каго-што.* Выставіць (выстаўляць) для агляду, паказаць (паказваць) на выстаўцы. ‖ *наз.* **экспанава́нне**, -я, *н.*

**ЭКСПАНА́Т**, -а, *М* -на́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прадмет, які выстаўляецца ў музеі або на выстаўцы для агляду. *Рарытэтны э.* ‖ *прым.* **экспана́тны**, -ая, -ае.

**ЭКСПАНЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Асоба ці арганізацыя, якая экспануе каго-, што-н. ‖ *прым.* **экспане́нцкі**, -ая, -ае.

**ЭКСПАНСІ́ЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які бурна, нястрымана выяўляе свае пачуцці. ‖ *наз.* **экспансі́ўнасць**, -і, *ж.*

**ЭКСПА́НСІЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). **1.** Пашырэнне, распаўсюджанне чаго-н. за першапачатковыя межы. *Э. эпідэмій.* **2.** Агрэсіўная палітыка, накіраваная на распаўсюджанне свайго палітычнага і эканамічнага ўплыву на іншыя краіны з мэтай захопу чужых тэрыторый і рынкаў збыту.

**ЭКСПАНСІЯНІ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Палітыка экспансіі, імкненне да экспансіі (у 2 знач.). ‖ *прым.* **экспансіяні́сцкі**, -ая, -ае.

**ЭКСПАНСІЯНІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Агрэсар, прыхільнік экспансіі. ‖ *прым.* **экспансіяні́сцкі**, -ая, -ае.

**Э́КСПАРТ**, -у, -рце, *м.* Вываз тавараў, капіталаў, тэхналогій за мяжу з мэтай рэалізацыі; *проціл.* імпарт. ‖ *прым.* **э́кспартны**, -ая, -ае.

**ЭКСПАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак.*, *што.* Вывезці (вывозіць) тавары, капітал і іншае з мэтай рэалізацыі за мяжу. *Э. сыравіну.* ‖ *наз.* **экспартава́нне**, -я, *н.*

**ЭКСПАРЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Асоба або арганізацыя, якая займаецца экспартам. ‖ *прым.* **экспарцёрскі**, -ая, -ае.

**ЭКСПАТРЫЯВА́ЦЬ**, -рыю́ю, -рыю́еш, -рыю́е; -рыю́й; -рыява́ны; *зак.* і *незак.*, *каго* (кніжн.). Ажыццявіць (ажыццяўляць) экспатрыяцыю. ‖ *звар.* **экспатрыява́цца**, -рыю́юся, -рыю́ешся, -рыю́ецца; -рыю́йся.

**ЭКСПАТРЫЯ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Асоба, якая правяла экспатрыяцыю ці трапіла пад яе ўздзеянне. ‖ *ж.* **экспатрыя́нтка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **экспатрыя́нцкі**, -ая, -ае.

**ЭКСПАТРЫЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Добраахвотнае ці прымусовае высяленне каго-н. за межы радзімы, якое звязана з пазбаўленнем грамадзянства. ‖ *прым.* **экспатрыяцы́йны**, -ая, -ае.

**ЭКСПЕДЗІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак.*, *што* (спец.). Адправіць (адпраўляць) па прызначэнні (карэспандэнцыю, тавар і пад.). ‖ *наз.* **экспедзі́раванне**, -я, *н.*

**ЭКСПЕДЫ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Работнік, які займаецца прыёмам, адпраўленнем і рассылкай чаго-н. (спец.). **2.** Чыноўнік, начальнік аддзела ў некаторых установах царскай Расіі (гіст.). ‖ *прым.* **экспеды́тарскі**, -ая, -ае.

**ЭКСПЕДЫ́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* **1.** Адпраўка, рассылка і прыём грузаў, карэспандэнцыі і пад. (спец.). *Э. пасылак.* **2.** Установа ці аддзел установы, якія займаюцца рассылкай ці адпраўкай чаго-н. (спец.). *Э. газет.* **3.** Паездка, паход групы асоб, атрада з навуковымі, даследчымі мэтамі. *Дыялекталагічная э. Паехаць у экспедыцыю.* **4.** Група ўдзельнікаў такой паездкі. *Члены экспедыцыі.* ‖ *прым.* **экспедыцы́йны**, -ая, -ае.

**ЭКСПЕ́РТ**, -а, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст, які праводзіць экспертызу і дае заключэнне пры разглядзе якога-н. пытання. *Высокакваліфікаваны э. Судовы э.* ‖ *прым.* **экспе́ртны**, -ая, -ае.

**ЭКСПЕРТЫ́ЗА**, -ы, *мн.* -ы, -ты́з, *ж.* **1.** Даследаванне, вывучэнне або разгляд экспертамі чаго-н. з мэтай даць ацэнку, зрабіць заключэнне. *Медыцынская э.* **2.** Экспертная камісія. *Э. ВАК.*

**ЭКСПЕРЫМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Навукова пастаўлены дослед. *Ставіць э.* **2.** Спроба ажыццявіць што-н. новае. *Псіхалагічны э.* ‖ *прым.* **эксперымента́льны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЭКСПЕРЫМЕНТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., над кім-чым* або *з кім-чым.* Праводзіць эксперыменты. *Э. з марскімі свінкамі.* ‖ *наз.* **эксперыментава́нне**, -я, *н.*

**ЭКСПЕРЫМЕНТА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто праводзіць эксперымент, хто эксперыментуе. *Вучоны-э. Вядомы э.* ‖ *прым.* **эксперымента́тарскі**, -ая, -ае.

**ЭКСПЛУАТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *незак., каго-што.* Падвяргаць эксплуатацыі. *Э. тэхніку.* ‖ *наз.* **эксплуатава́нне**, -я, *н.*

**ЭКСПЛУАТА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто эксплуатуе іншых. ‖ *ж.* **эксплуата́тарскі**, -ая, -ае.

**ЭКСПЛУАТАЦЫ́ЙНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Той, хто займаецца эксплуатацыяй (у 2 знач.), практычным выкарыстаннем чаго-н. *Ачышчальныя збудаванні здадзены эксплуатацыйнікам.*

**ЭКСПЛУАТА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Бязвыплатнае прысваенне аднымі людзьмі прадуктаў працы іншых людзей. **2.** Сістэматычнае выкарыстанне для якіх-н. практычных мэт прыродных багаццяў, сродкаў вытворчасці, будынкаў, машын і пад. *Э. аўтамабіля. Служба эксплуатацыі на аўтамабільных дарогах. Э. будынка тэатра.* ‖ *прым.* **эксплуатацы́йны**, -ая, -ае (да 2 знач.).

**ЭКСПРАПРЫІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго-што* (кніжн.). Падвергнуць (падвяргаць) каго-, што-н. экспрапрыяцыі. *Э. маёмасць.*

**ЭКСПРАПРЫЯ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто экспрапрыіруе што-н. ‖ *прым.* **экспрапрыя́тарскі**, -ая, -ае.

**ЭКСПРАПРЫЯ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Прымусовая канфіскацыя маёмасці ў каго-н. *Э. зямлі.* ‖ *прым.* **экспрапрыяцы́йны**, -ая, -ае.

**ЭКСПРО́МТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Верш, музычны твор і пад., створаныя без папярэдняй падрыхтоўкі, у момант выканання. *Музычны э.* **2.** Прамова, трапны адказ, сказаныя без папярэдняга абдумвання. ‖ *прым.* **экспро́мтны**, -ая, -ае.

**ЭКСПРО́МТАМ**, *прысл.* Без падрыхтоўкі, адразу. *Выступіць э.*

**ЭКСПРЭ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Цягнік, аўтобус, параход і пад., якія ідуць з вялікай хуткасцю і спыняюцца толькі на галоўных прыпынках, станцыях. ‖ *прым.* **экспрэ́сны**, -ая, -ае.

**ЭКСПРЭС-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. тэрміновы, апаратыўны, напр.: *экспрэс-аналіз, экспрэс-дыягностыка, экспрэс-інфармацыя, экс-*

*прэс-лабараторыя* (якая ажыццяўляе тэрміновыя аналізы, пробы), *экспрэс-проба.*

**ЭКСПРЭСІЎНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Выразны, з экспрэсіяй. *Экспрэсіўныя сродкі мовы.* ‖ *наз.* **экспрэсіўнасць**, -і, *ж.*

**ЭКСПРЭСІЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Выразнасць, сіла выражэння пачуццяў, перажыванняў і пад. *Дэкламаваць з экспрэсіяй.*

**ЭКСПРЭСІЯНІЗМ**, -у, *м.* Плынь у мастацтве і літаратуры 1-й палавіны 20 ст., прадстаўнікі якой лічылі сваёй асноўнай задачай выражэнне ўнутранага свету мастака, яго суб'ектыўных творчых перажыванняў. ‖ *прым.* **экспрэсіяністычны**, -ая, -ае.

**ЭКСПРЭСІЯНІСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мастак — паслядоўнік экспрэсіянізму. ‖ *ж.* **экспрэсіяністка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **экспрэсіяніcцкі**, -ая, -ае.

**ЭКСТАЗ**, -у, *м.* **1.** Найвышэйшая ступень захаплення, пры якой чалавек даходзіць да самазабыцця. *Дайсці да экстазу. Гаварыць што-н. у экстазе.* **2.** Від афектыўнага псіхічнага расстройства, непрытомна-раз'юшаны стан (спец.). ‖ *прым.* **экстатычны**, -ая, -ае.

**ЭКСТРА**, *нескл. прым.* Самы лепшы, найвышэйшы (пра якасць, гатунак тавару). *Шакалад э.*

**ЭКСТРА...**, *прыстаўка.* Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. словам «найвышэйшы, «звыш», «па-за», «дадаткова», напр.: *экстраклас, экстраардынарны, экстразанальны, экстрапошта.*

**ЭКСТРААРДЫНАРНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Надзвычайны, які выходзіць за межы звычайнага, рэдкі; *проціл.* ардынарны. ○ **Экстраардынарны прафесар** (уст.) — пасада ў навучальнай установе, якую займаў звышштатны прафесар. ‖ *наз.* **экстраардынарнасць**, -і, *ж.*

**ЭКСТРАВАГАНТНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які звяртае на сябе ўвагу сваёй незвычайнасцю, своеасаблівасцю. *Э. касцюм. Экстравагантныя паводзіны.* ‖ *наз.* **экстравагантнасць**, -і, *ж.*

**ЭКСТРАКТ**, -у, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тое, што і *выцяжка* (у 2 знач.). ‖ *прым.* **экстрактны**, -ая, -ае.

**ЭКСТРАННЫ**, -ая, -ае. **1.** Тэрміновы, неадкладны. *Экстраннае тармажэнне.* **2.** Надзвычайны, непрадугледжаны, паспешны. *Экстранныя расходы.* ‖ *наз.* **экстраннасць**, -і, *ж.*

**ЭКСТРАСЭНС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У парапсіхалогіі: чалавек, які валодае звышадчувальнымі здольнасцямі, успрымае біяпалі, можа ўздзейнічаць на іх.

**ЭКСТРАСЭНСОРНЫ**, -ая, -ае (спец.). У парапсіхалогіі: які мае адносіны да форм звышадчувальнага, звышпачуццёвага ўспрыняцця. ‖ *наз.* **экстрасэнсорнасць**, -і, *ж.*

**ЭКСТРЭМАЛЬНЫ**, -ая, -ае. Крайні па сваім праяўленні (сіле, велічыні), які вылучаецца такім праяўленнем; небяспечны. *Экстрэмальныя ўмовы. Э. спорт.*

**ЭКСТРЭМІЗМ**, -у, *м.* Схільнасць да крайніх поглядаў і мер (звычайна ў палітыцы). ‖ *прым.* **экстрэмісцкі**, -ая, -ае.

**ЭКСТРЭМІСТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыхільнік экстрэмізму. ‖ *ж.* **экстрэмістка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (разм.). ‖ *прым.* **экстрэмісцкі**, -ая, -ае. *Экстрэмісцкія погляды.*

**ЭКСТЭНСІЎНЫ**, -ая, -ае. Накіраваны ў бок колькаснага павелічэння, пашырэння, без паляпшэння якасці. *Э. метад. Экстэнсіўнае земляробства.* ‖ *наз.* **экстэнсіўнасць**, -і, *ж.*

**ЭКСТЭР'ЕР**, -у, *м.* Знешні выгляд, склад будынкаў, цела жывёл і інш. ‖ *прым.* **экстэр'ерны**, -ая, -ае.

**ЭКСТЭРН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая здае экзамены за вучэбны курс якой-н. навучальнай установы без вучобы ў ёй. ○ **Здаваць (здаць) экстэрнам** — здаваць (здаць) экзамен без навучання ў адпаведнай навучальнай установе. *Скончыць універсітэт экстэрнам.*

**ЭКСТЭРНАТ**, -у, *М* -наце, *м.* Самастойнае праходжанне курса навучання са здачай экзаменаў пры якой-н. навучальнай установе.

**ЭКСТЭРЫТАРЫЯЛЬНАСЦЬ**, -і, *ж.* (спец.). Права дыпламатычных прадстаўнікоў, што знаходзяцца ў якой-н. дзяржаве, падпарадкоўвацца законам толькі сваёй дзяржавы; дыпламатычны імунітэт. *Э. пасла.* ‖ *прым.* **экстэрытарыяльны**, -ая, -ае.

**ЭКСЦЭНТРЫК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Артыст, які выконвае своеасаблівыя эксцэнтрычныя нумары. **2.** Чалавек з дзівацтвамі.

**ЭКСЦЭНТРЫК**[2], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). Металічны дыск, насаджаны на вярчальны вал так, што цэнтры дыска і вала не супадаюць; ужыв. ў машынах для пераўтварэння вярчальнага руху ў паступальны.

**ЭКСЦЭНТРЫКА**, -і, *ДМ* -рыцы, *ж.* (спец.). Востракамедыйнае, заснаванае на кантрастах і нечаканасцях адлюстраванне дзеянняў, учынкаў персанажаў тэатральнага, цыркавога спектакля і іншых відовішчаў. *Музычная э. Цыркавая э.* ‖ *прым.* **эксцэнтрычны**, -ая, -ае. *Э. нумар.*

**ЭКСЦЭНТРЫЧНЫ**[1], -ая, -ае. **1.** Заснаваны на нечаканых рэзкіх гукавых ці зрокавых кантрастах, незвычайных, смешных прыёмах. *Э. трук.* **2.** Вельмі дзіўны, своеасаблівы, мудрагелісты. *Эксцэнтрычныя выхадкі.* ‖ *наз.* **эксцэнтрычнасць**, -і, *ж.*

**ЭКСЦЭНТРЫЧНЫ**[2], -ая, -ае (спец.). Які не мае агульнага цэнтра; *проціл.* канцэнтрычны. *Эксцэнтрычныя кругі.*

**ЭКСЦЭС**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). **1.** Крайняе праяўленне чаго-н.; празмернасць, нястрыманасць. *Захоўваць вытрымку, ніякіх эксцэсаў!* **2.** Парушэнне нармальнага ходу чаго-н., вострае сутыкненне. *Папярэдзіць узнікненне эксцэсаў.*

**ЭКУМЕНІЗМ**, -у, *м.* (спец.). Супрацоўніцтва цэркваў розных веравызнанняў з мэтай збліжэння, а ў канчатковым выніку злучэння ўсіх кірункаў хрысціянства і іншых веравызнанняў. ‖ *прым.* **экуменічны**, -ая, -ае. *Э. рух.*

**ЭЛАСТЫК**, -у, *м.* Сінтэтычнае эластычнае валакно, а таксама вырабы з яго, што маюць уласцівасць расцягвацца. *Штаны з эластыку.* ‖ *прым.* **эластычны**, -ая, -ае.

**ЭЛАСТЫЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Гнуткі і пругкі, які мае ўласцівасць расцягвацца. *Э. бінт.* **2.** *перан.* Плаўны, пазбаўлены рэзкасці, мяккі. *Эластычныя рухі.* ‖ *наз.* **эластычнасць**, -і, *ж.* (да 2 і 3 знач.).

**ЭЛЕВАТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Збожжасховішча з механічным абсталяваннем для прыёму, ачысткі, сушкі і адгрузкі зерня. *Везці пшаніцу на э.* **2.** Транспарцёр для перамяшчэння грузаў (спец.). ‖ *прым.* **элеватарны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕГАНТНЫ**, -ая, -ае. Вытанчаны, зграбны, прыгожы; з густам. *Элегантнае адзенне. Э. выгляд.* ‖ *наз.* **элегантнасць**, -і, *ж.*

**ЭЛЕГІЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** *гл.* элегія. **2.** Сумны, журботны, летуценны. *Элегічныя думы.* ‖ *наз.* **элегічнасць**, -і, *ж.*

**ЭЛЕГІЯ**, -і, *мн.* -і, -гій, *ж.* **1.** Лірычны верш або музычны твор, прасякнуты пачуццём смутку, журбы, роздуму. **2.** *перан.* Сум, журба, меланхолія. ‖ *прым.* **элегічны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРА...** Першая састаўная частка складаных слоў, якая адпавядае па знач. слову «электрычны», напр.: *электрапоезд, электраманцёр.*

**ЭЛЕКТРАБУР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Машына з электрарухавіком для бурэння свідравін.

**ЭЛЕКТРАВОЗ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лакаматыў з рухавіком, што працуе ад электрасеткі. ‖ *прым.* **электравозны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАВОЗАБУДАВАННЕ**, -я, *н.* Выпуск электравозаў. ‖ *прым.* **электравозабудаўнічы**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАГІТАРА**, -ы, *мн.* -ы, -тар, *ж.* Гітара з электрычным узмацненнем гучання.

**ЭЛЕКТРАГРЭЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Электрычная грэлка.

**ЭЛЕКТРАДЫНАМІКА**, -і, *ДМ* -міцы, *ж.* (спец.). Тэорыя электрамагнітных працэсаў. ‖ *прым.* **электрадынамічны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАЗАСЦЕРАГАЛЬНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Прыстасаванне для засцярогі электрычных правадоў і прыбораў ад перагрэву.

**ЭЛЕКТРАЗВАНОК**, -нка, *мн.* -нкі, -нкоў, *м.* Электрычны званок.

**ЭЛЕКТРАЗВАРКА**, -і, *ДМ* -рцы, *ж.* **1.** Зварка металаў пры дапамозе электрычнай энергіі. **2.** Электразварачны цэх; электразварачная ўстаноўка (разм.). ‖ *прым.* **электразварачны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАЗВАРШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па электразварцы. ‖ *ж.*

**электразва́ршчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **электразва́ршчыцкі**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАКАМІ́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Камін, які працуе на электрычнай энергіі.

**ЭЛЕКТРАКА́Р**, -а, *м.* **1.** Тое, што і *электрамабіль.* **2.** Самаходная бязрэйкавая цялежка, якая рухаецца пры дапамозе ўстаноўленага на ёй электрарухавіка, што сілкуецца ад акумулятараў (спец.).

**ЭЛЕКТРАКРА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Пад'ёмны кран, які дзейнічае пры дапамозе электрарухавіка.

**ЭЛЕКТРАЛІ́НІЯ**, -і, *мн.* -і, -ній, *ж.* Канструкцыя, прылада з проваду, кабелю і электраарматуры для перадачы электраэнергіі. *Высакавольтная э.*

**ЭЛЕКТРАЛЯ́МПАВЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да вырабу электрычных лямпаў. *Э. завод.*

**ЭЛЕКТРАЛЯЧЭ́ННЕ**, -я, *н.* Лячэнне шляхам уздзеяння на арганізм электрычнага току або электрамагнітнага поля. ‖ *прым.* **электралячэ́бны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАМАБІ́ЛЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Аўтамабіль з электрычным рухавіком. ‖ *прым.* **электрамабі́льны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАМАГНЕТЫ́ЗМ**, -у, *м.* (спец.). Сукупнасць з'яў, што вызначаюць непарыўную сувязь паміж электрычнымі і магнітнымі ўласцівасцямі рэчыва. ‖ *прым.* **электрамагнеты́чны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАМАГНІ́Т**, -а, *М* -ніце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прылада для атрымання магнітнага поля пры дапамозе электрычнага току, звычайна ў выглядзе стальнога або жалезнага сардэчніка з драцяной абмоткай; штучны магніт. ‖ *прым.* **электрамагні́тны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАМАНТА́Ж**, -у́, *м.* Мантаж электрычнага абсталявання, электрычных прыбораў, прыстасаванняў. ‖ *прым.* **электраманта́жны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАМАНЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па электрычным абсталяванні, рабочы-манцёр.

**ЭЛЕКТРАМАТО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рухавік, якіператварае электрычную энергію ў механічную. ‖ *прым.* **электрамато́рны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАПАЛАЦЁР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Электрычная прылада для націрання падлогі. ‖ *прым.* **электрапалацёрны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАПЕРАДА́ЧА**, -ы, *мн.* -ы, -да́ч, *ж.* **1.** Перадача электраэнергіі на адлегласць. **2.** Комплекс збудаванняў для такой перадачы. *Лінія электраперадач.* ‖ *прым.* **электраперада́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЭЛЕКТРАПЕ́Ч**, -ы, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Печ, якая працуе на электраэнергіі.

**ЭЛЕКТРАПІЛА́**, -ы́, *мн.* -пі́лы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) -пілы́, -пі́л, *ж.* Піла, што прыводзіцца ў дзеянне электраматорам.

**ЭЛЕКТРАПЛІТА́**, -ы́, *ДМ* -ліцэ́, *мн.* -плі́ты *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) -пліты́, -плі́т, *ж.* Пліта (у 2 знач.), якая працуе на электраэнергіі.

**ЭЛЕКТРАПРАВО́ДКА**, -і, *ДМ* -дцы, *ж.* Сістэма правадоў для перадачы току нізкага напружання.

**ЭЛЕКТРАПРАВО́ДНЫ**, -ая, -ае. Здольны праводзіць электрычны ток. ‖ *наз.* **электраправо́днасць**, -і, *ж.*

**ЭЛЕКТРАПРО́ВАД**, -у, *М* -дзе, *мн.* -правады́, -о́ў, *м.* Металічны провад для перадачы электрычнага току.

**ЭЛЕКТРАПРЫБО́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор, які працуе на электраэнергіі. *Майстэрня па рамонце электрапрыбораў.*

**ЭЛЕКТРАРУХАВІ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Электрычная машына, якая пераўтварае электрычную энергію ў механічную.

**ЭЛЕКТРАРУ́ХАЮЧЫ**, -ая, -ае. У выразе: **электрарухаючая сіла** — крыніца энергіі, якая выклікае і падтрымлівае электрычны ток у замкнутым ланцугу; велічыня, што характарызуе такую крыніцу.

**ЭЛЕКТРАСАМАВА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Самавар, у якім вада награвaецца з дапамогай электраэнергіі.

**ЭЛЕКТРАСО́Н**, -сну́, *м.* Медыцынская працэдура, якая выклікае сон пад уздзеяннем слабага імпульснага электрычнага току на галаўны мозг.

**ЭЛЕКТРАСТА́НЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* Электрычная станцыя — прадпрыемства на якім здабываецца электраэнергія з іншых відаў энергіі. *Атамная э.*

**ЭЛЕКТРАСТА́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* (спец.). Раздзел электрадынамікі, які вывучае ўласцівасці электрычнасці, узаемадзеянне электрычных зарадаў у адносна нерухомым стане. ‖ *прым.* **электраста́тычны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАТАБЛО́**, *нескл., н.* Экран з электрычнымі сігнальнымі сістэмамі інфармацыйнага прызначэння.

**ЭЛЕКТРАТРА́НСПАРТ**, -у, *М* -рце, *м.* Транспарт, які працуе на электрычнай цязе. ‖ *прым.* **электратра́нспартны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАТЭРАПІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Тое, што і *электралячэнне.* ‖ *прым.* **электратэрапеўты́чны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАТЭ́ХНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па электратэхніцы. **2.** Рабочы, які займаецца ўстаноўкай, зборкай, рамонтам і пад. электрычнага абсталявання і электрычных прыбораў.

**ЭЛЕКТРАТЭ́ХНІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* Навука аб прымяненні электрычнасці для практычных мэт, а таксама само такое прымяненне. ‖ *прым.* **электратэхні́чны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАФО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Прылада для ўзнаўлення гуку, запісанага на грампласцінках. ‖ *прым.* **электрафо́нны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАХІ́МІЯ**, -і, *ж.* Раздзел фізічнай хіміі, які вывучае сувязь электрычных і хімічных працэсаў. ‖ *прым.* **электрахімі́чны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАХО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* Самаходнае судна з электрарухавікамі. ‖ *прым.* **электрахо́дны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАЦЯ́ГА**, -і, *ДМ* -ця́зе, *ж.* Прымяненне электраэнергіі ў якасці цягі на транспарце.

**ЭЛЕКТРАШО́К**, -у, *м.* (спец.). Метад лячэння псіхічных расстройстваў шляхам раздражнення мозга дазіраванымі электрычнымі разрадамі. ‖ *прым.* **электрашо́кавы**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРАЭНЕ́РГІЯ**, -і, *ж.* Электрычная энергія.

**ЭЛЕКТРО́БУС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Мнагамесная транспартная машына, якая працуе на акумулятарных батарэях без рэек і проваду. ‖ *прым.* **электро́бусны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Праваднік, пры дапамозе якога частка электрычнага ланцуга, што ўтвараецца правадамі, злучаецца з часткай ланцуга, што праходзіць у неметалічным асяроддзі (вадкасці, газе і інш.). *Дадатны э.* (анод). *Адмоўны э.* (катод). **2.** Элемент канструкцыі, па якім куды-н. падводзіцца электрычны ток. *Зварачны э.* ‖ *прым.* **электро́дны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРО́ЛІЗ**, -у, *м.* (спец.). Хімічны працэс распаду рэчыва на састаўныя часткі пры праходжанні праз яго электрычнага току. ‖ *прым.* **электро́лізны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРО́МЕТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Прыбор для вымярэння электрычнага напружання, электрычнага патэнцыялу.

**ЭЛЕКТРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Элементарная часціца з найменшым адмоўным электрычным зарадам. ‖ *прым.* **электро́нны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРО́НІКА**, -і, *ДМ* -ніцы, *ж.* Навука аб узаемадзеянні электронаў з электрамагнітнымі палямі і аб метадах стварэння электрычных прыбораў і абсталявання.

**ЭЛЕКТРОННА-...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач. электронны (у 2 знач.), напр.: *электронна-акустычны, электронна-аптычны, электронна-вылічальны, электронна-вымяральны, электронна-лічыльны, электронна-мікраскапічны, электронна-ядзерны.*

**ЭЛЕКТРО́ННА-ВЫЛІЧА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да электронных сродкаў, прызначаных для вылічальных аперацый, пераўтварэння інфармацыі, для кіравання механізмамі, агрэгатамі і пад. *Электронна-вылічальная машына.*

**ЭЛЕКТРО́ННЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* электрон. **2.** Звязаны з выкарыстаннем уласцівасцей электронаў, заснаваны на іх уласцівасцях. *Э. мікраскоп. Электронная лінза.*

**ЭЛЕКТРЫЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *зак.* і *незак., каго-што.* **1.** Перадаць (перадаваць) якому-н. целу электрычны разрад. **2.** *перан.* Узбудзіць, давесці (узбуджаць, даводзіць) да пэўнага стану. *Э. сенсацыйнымі навінамі.* ‖ *зак.* таксама **наэлектрызава́ць**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *звар.* **наэлектрызава́цца**, -зу́юся, -зу́ешся, -зу́ецца; -зу́йся. ‖ *наз.* **электрыза́цыя**, -і, *ж.*

**ЭЛЕ́КТРЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст у галіне электрычнасці, электратэхнікі. **2.** Электратэхнік, электраманцёр. *Выклікаць электрыка.*

**ЭЛЕКТРЫ́К**, *нескл. прым.* Насычаны блакітна-сіні колер. *Касцюм колеру э.*

**ЭЛЕКТРЫФІКАВА́ЦЬ**, -кую, -куеш, -куе; -куй; -кава́ны; *зак.* і *незак.* Укараніць (укараняць) электраэнергію ў народную гаспадарку і быт. *Э. вёску.* ‖ *наз.* **электрыфіка́цыя**, -і, *ж.* ‖ *прым.* **электрыфікацы́йны**, -ая, -ае.

**ЭЛЕКТРЫ́ЧКА**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (разм.). Поезд электрычнай чыгункі. *Вячэрняя э.*

**ЭЛЕКТРЫ́ЧНАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Сукупнасць з'яў, у якіх выяўляецца існаванне, рух, узаемадзеянне зараджаных часціц. *Вучэнне аб электрычнасці.* **2.** Энергія, што атрымліваецца ў выніку выкарыстання такіх з'яў. *Прымяненне электрычнасці ў тэхніцы.* **3.** Асвятленне, атрыманае на аснове гэтай энергіі. *Запаліць э.* ‖ *прым.* **электры́чны**, -ая, -ае. *Э. зарад. Э. ток. Электрычная лямпа.*

**ЭЛЕМЕ́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Састаўная частка чаго-н.; кампанент. *Культура складаецца з многіх элементаў.* **2.** Доля, некаторая частка ў складзе чаго-н. *Інтэрнацыянальныя элементы ў беларускай тэрміналогіі.* **3.** *мн.* Асновы, пачатак чаго-н. (кніжн.). *Элементы матэматыкі.* **4.** Пра чалавека, асобу як члена якой-н. сацыяльнай групы. *Прагрэсіўныя элементы грамадства.* **5.** Простае рэчыва, якое не раскладаецца на састаўныя часткі звычайнымі хімічнымі метадамі (спец.). *Перыядычная сістэма элементаў (Мендзялеева).* **6.** Хімічная крыніца электрычнага току. *Гальванічны э.* ‖ *прым.* **элеме́нтны**, -ая, -ае (да 1 і 6 знач.).

**ЭЛЕМЕНТА́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да элементаў (у 5 знач.). *Э. састаў рэчыва.* **2.** Пачатковы, які датычыцца асноў чаго-н., асноўны, самы неабходны. *Элементарная фізіка. Элементарныя веды.* **3.** *перан.* Нескладаны, прасцейшы, такі, які павінен быць вядомы кожнаму. *Элементарныя пытанні правапісу. Элементарныя правілы паводзін.* **4.** *перан.* Спрошчаны, павярхоўны, абмежаваны. *Элементарная схема.* ‖ *наз.* **элемента́рнасць**, -і, *ж.* (да 3 і 4 знач.).

**ЭЛЕЎТЭРАКО́К**, -у, *м.* Хмызняковая расліна, якая валодае лекавымі ўласцівасцямі. ‖ *прым.* **элеўтэрако́кавы**, -ая, -ае.

**ЭЛІКСІ́Р**, -у, *м.* **1.** Выцяжка з раслін або моцны настой на спірце, кіслотах і пад., ужыв. ў медыцыне, касметыцы. *Рамонкавы э.* **2.** *перан.* Пра тое, што бадзёрыць, дае тонус жыццю. *Узбадзёрыцца эліксірам.* ◊ **Эліксір жыцця** — чарадзейны напітак, які імкнуліся атрымаць алхімікі для таго, каб захаваць маладосць. ‖ *прым.* **эліксі́рны**, -ая, -ае.

**Э́ЛІНГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (спец.). **1.** Спецыяльнае памяшканне на беразе, дзе будуецца ці рамантуецца корпус судна. **2.** Памяшканне для дырыжабляў і аэрастатаў. **3.** Збудаванне асобага тыпу для захоўвання спартыўных суднаў, вёслаў і іншага інвентару. ‖ *прым.* **э́лінгавы**, -ая, -ае.

**Э́ЛІНЫ**, -аў, *адз.* э́лін, -а, *м.* Назва старажытных грэкаў. ‖ *ж.* **э́лінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. ‖ *прым.* **э́лінскі**, -ая, -ае.

**Э́ЛІПС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У матэматыцы: замкнёная крывая, якая атрымліваецца перасячэннем канічнай паверхні плоскасцю. **2.** Тое, што і *эліпсіс.* ‖ *прым.* **эліпты́чны**, -ая, -ае. *Эліптычная арбіта.*

**Э́ЛІПСІС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У мовазнаўстве: рытарычная фігура, якая заключаецца ў пропуску якога-н. члена сказа, што лёгка ўзнаўляецца з кантэксту. ‖ *прым.* **эліпты́чны**, -ая, -ае.

**ЭЛІ́ТА**, -ы, *ДМ* -лі́це, *ж., зб.* **1.** Лепшыя расліны, насенне або жывёлы, якія па сваіх якасцях найбольш прыдатныя для далейшага развядзення (спец.). **2.** Прывілеяваныя вярхі грамадства або якой-н. яго часткі; вышэйшы клас. *Уваходзіць у эліту беларускага бізнесу.* **3.** Лепшыя прадстаўнікі грамадства. *Навуковая э.* ‖ *прым.* **элі́тны**, -ая, -ае (да 1 знач.) *і* **эліта́рны**, -ая, -ае (да 2 знач.). *Элітнае насенне. Элітны рэстаран. Элітарная культура.*

**ЭЛЬФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У германа-скандынаўскай міфалогіі: дух прыроды, казачная істота, добразычлівая да людзей. *Жылі ў тым лесе эльфы і феі.*

**ЭМАЛІРАВА́НЫ**, -ая, -ае. Пакрыты эмаллю (у 1 знач.). *Э. посуд.*

**ЭМАЛІРАВА́ЦЬ**, -ру́ю, -ру́еш, -ру́е; -ру́й; -рава́ны; *незак., што.* Пакрываць эмаллю (у 1 знач.). ‖ *наз.* **эмалірава́нне**, -я, *н. і* **эмаліро́ўка**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, *ж.* ‖ *прым.* **эмаліро́вачны**, -ая, -ае. *Эмаліровачныя работы.*

**ЭМАЛІРО́ЎКА**, -і, *ДМ* -ро́ўцы, -і, *ж.* **1.** *гл.* эмаліраваць. **2.** Слой эмалі (у 1 знач.) на чым-н. *Няякасная э.*

**ЭМАЛІРО́ЎШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Майстар, які займаецца эмаліроўкай чаго-н. ‖ *ж.* **эмаліро́ўшчыца**, -ы, *мн.* -ы, -чыц. ‖ *прым.* **эмаліро́ўшчыцкі**, -ая, -ае.

**ЭМА́ЛЬ**, -і, *мн.* -і, -ей *і* -яў, *ж.* **1.** Непразрыстая шклопадобная маса для пакрыцця металічных прадметаў. **2.** звычайна *зб.* Мастацкія вырабы, пакрытыя такой масай. *Грузінскія эмалі.* **3.** Рэчыва, што пакрывае знешнюю частку зуба (спец.). **4.** Лакафарбавы матэрыял у выглядзе суспензіі пігментаў (іншы раз з напаўняльнікамі) у лаку. ‖ *прым.* **эма́левы**, -ая, -ае (да 1 і 4 знач.).

**ЭМАНСІПА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). **1.** Вызваленне ад залежнасці, прыгнёту, няраўнапраўя; адмена якіх-н. абмежаванняў. **2.** Грамадскі рух за роўныя правы жанчын з мужчынамі. ‖ *прым.* **эмансіпацы́йны**, -ая, -ае.

**ЭМАНСІПІ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; -раваны; *зак.* і *незак., каго-што* (кніжн.). Правесці (праводзіць) эмансіпацыю.

**ЭМАЦЫЯНА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* эмоцыя. **2.** Які выражае эмоцыі, насычаны, выкліканы імі. *Эмацыянальная размова.* **3.** Здольны жыва рэагаваць, які лёгка паддаецца эмоцыям. *Эмацыянальная асоба.* ‖ *наз.* **эмацыяна́льнасць**, -і, *ж.*

**ЭМБА́РГА**, *нескл., н.* (спец.). Дзяржаўная забарона ўвозу ці вывазу замежных тавараў, каштоўнасцей або затрыманне дзяржавай маёмасці (суднаў, узбраення), якая належыць замежнай дзяржаве, у сувязі з палітычнымі ўскладненнямі. *Эканамічнае э.*

**ЭМБЛЕ́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ле́м, *ж.* Відарыс, умоўнае абазначэнне якога-н. паняцця, ідэі. *Голуб — э. міру. Нацыянальная э.* ‖ *прым.* **эмблематы́чны**, -ая, -ае.

**ЭМБРЫЁЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне эмбрыялогіі.

**ЭМБРЫЁН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Зародак чалавека ці жывёлы на пачатковых стадыях развіцця. ‖ *прым.* **эмбрыяна́льны**, -ая, -ае.

**ЭМБРЫЯЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел біялогіі, які вывучае ўтварэнне і развіццё эмбрыёнаў. ‖ *прым.* **эмбрыялагі́чны**, -ая, -ае.

**ЭМІГРА́НТ**, -а, *М* -нце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, хто эмігрыраваў, знаходзіцца ў эміграцыі. ‖ *ж.* **эмігра́нтка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **эмігра́нцкі**, -ая, -ае.

**ЭМІГРА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* **1.** Добраахвотнае або вымушанае перасяленне са сваёй радзімы ў іншую краіну па палітычных, эканамічных і іншых матывах. **2.** Знаходжанне за межамі сваёй радзімы ў выніку такога перасялення. *Быць два гады ў эміграцыі.* **3.** *зб.* Эмігранты. ‖ *прым.* **эміграцы́йны**, -ая, -ае.

**ЭМІГРЫ́РАВАЦЬ**, -рую, -руеш, -руе; -руй; *зак.* і *незак.* Перасяліцца (перасяляцца) са сваёй радзімы ў іншую краіну.

**ЭМІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Тытул правіцеля, князя ў некаторых мусульманскіх краінах Усходу і Афрыкі, а таксама асоба, якая мае гэты тытул. ‖ *прым.* **эмі́рскі**, -ая, -ае.

**ЭМІРА́Т**, -а, *М* -ра́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Дзяржава, якая ўзначальваецца эмірам, кіруецца Саветам эміраў.

**ЭМІСА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Асоба, якую неафіцыйна пасылаюць з сакрэтным палітычным даручэннем у іншую краіну. ‖ *прым.* **эміса́рскі**, -ая, -ае.

**ЭМІ́СІЯ**[1], -і, *ж.* (спец.). Выпуск каштоўных папер, папяровых грошай. *Э. банка.* ‖ *прым.* **эмісі́йны**, -ая, -ае.

**ЭМІ́СІЯ**[2], -і, *ж.* (спец.). Выпраменьванне, выдзяленне якім-н. целам электронаў, іонаў, пазітронаў і пад. пад уздзеяннем награвання, асвятлення і інш. *Электронная э.*

**ЭМО́ЦЫЯ**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* (кніжн.). Душэўнае перажыванне, пачуццё. *Э. радасці.* ‖ *прым.* **эмацыяна́льны**, -ая, -ае. *Эмацыянальнае ўздзеянне.*

**ЭМПІРЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Філасофскі кірунак, які прызнае пачуццёвае ўспрыманне і вопыт адзінай крыніцай пазнання і недаацэньвае значэнне паняццяў, тэарэтычных абагульненняў пры вывучэнні асобных фактаў, з'яў. **2.** Даследчы метад, заснаваны на апісанні фактаў, без далейшых заключэнняў і тэарэтычных абагульненняў (кніжн.). ‖ *прым.* **эмпіры́чны**, -ая, -ае.

**ЭМПІ́РЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Паслядоўнік эмпірызму (у 1 знач.). **2.** Вучоны, які будуе свае даследаванні на эмпірызме (у 2 знач.; кніжн.).

**ЭМПІРЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* эмпірызм, эмпірыя. **2.** Прасякнуты эмпірызмам, заснаваны на эмпірыі; вопытны. *Э. вывад.* ‖ *наз.* **эмпіры́чнасць**, -і, *ж.*

**ЭМПІРЫ́Я**, -і, *ж.* (кніжн.). **1.** Чалавечы вопыт увогуле, успрыманне ўсяго знешняга органамі пачуццяў. **2.** Назіранне ў натуральных умовах у адрозненне ад эксперыменту. ‖ *прым.* **эмпіры́чны**, -ая, -ае.

**ЭМПІРЫЯКРЫТЫЦЫ́ЗМ**, -у, *м.* Суб'ектыўна-ідэалістычны кірунак у філасофіі і метадалогіі навукі канца 19 — пачатку 20 ст., які адмаўляе аб'ектыўнае існаванне матэрыяльнага свету і разглядае яго як з'яву свядомасці і спалучэнне адчуванняў індывіда.

**Э́МУ**, *нескл.*, *м.* Вялікая птушка атрада казуарападобных з буравата-шэрым апярэннем і доўгімі нагамі; аўстралійскі страус.

**ЭМУ́ЛЬСІЯ**, -і, *ж.* (спец.). **1.** Вадкасць з узважанымі ў ёй часціцамі іншай вадкасці. **2.** Святлоадчувальны слой на фотапласцінках, фота- і кінаплёнцы (уст.). ‖ *прым.* **эмульсі́йны**, -ая, -ае.

**ЭМФА́ЗА**, -ы, *ж.* (спец.). **1.** У літаратуры: узмацненне эмацыянальнай выразнасці мовы, якое дасягаецца зменай інтанацыі і выкарыстаннем парадку слоў і розных рытарычных фігур. **2.** У лінгвістыцы: спосаб артыкуляцыі, які стварае напружанасць у гучанні некаторых зычных гукаў. ‖ *прым.* **эмфаты́чны**, -ая, -ае. *Э. націск.*

**ЭМФІЗЕ́МА**, -ы, *ж.* (спец.). Хваробатворнае скапленне паветра ў якіх-н. органах, тканках. *Э. лёгкіх. Тканкавая э.* ‖ *прым.* **эмфіземато́зны**, -ая, -ае.

**ЭНДАКРЫНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб залозах унутранай сакрэцыі і захворваннях, звязаных з парушэннем іх функцый. ‖ *прым.* **эндакрыналагі́чны**, -ая, -ае.

**ЭНДАКРЫ́ННЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да залоз унутранай сакрэцыі. *Эндакрынныя залозы.*

**ЭНДАКРЫНО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач, спецыяліст у галіне эндакрыналогіі.

**ЭНДАСКАПІ́Я**, -і, *ж.* (спец.). Медыцынскае абследаванне пры дапамозе эндаскопа. *Э. лёгкіх.* ‖ *прым.* **эндаскапі́чны**, -ая, -ае. *Э. агляд.*

**ЭНДАСКО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Прыбор для візуальнага абследавання ўнутраных органаў чалавека (страўніка, стрававода і інш.). ‖ *прым.* **эндаско́пны**, -ая, -ае.

**Э́НДШПІЛЬ**, -ю, *м.* (спец.). Заключная стадыя ў шахматнай партыі.

**ЭНЕРГА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: 1) які мае адносіны да энергетыкі, адпавядае па знач. слову «энергетычны», напр.: *энергабаза, энергагігант, энергаўзброенасць;* 2) які мае адносіны да энергіі (у 1 знач.), напр.: *энергаёмістасць, энергаёмісты, энергазабеспячэнне, энерганосьбіт, энергасілкаванне.*

**ЭНЕРГАНО́СЬБІТЫ**, -аў, *адз.* энергано́сьбіт, -а, *М* -біце, *м.* Карысныя выкапні і прадукты іх перапрацоўкі як крыніцы энергіі (вугаль, газ, нафта, нафтапрадукты).

**ЭНЕРГЕ́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* **1.** Спецыяліст па энергетыцы. **2.** Напітак, у склад якога ўваходзяць рэчывы, што ўзбуджаюць нервовую сістэму, танізуюць (разм.).

**ЭНЕРГЕ́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Навука аб заканамернасцях працэсаў і з'яў, прама або ўскосна звязаных з атрыманнем, пераўтварэннем, перадачай, размеркаваннем і выкарыстаннем розных відаў энергіі (у 1 знач.). *Ядзерная э.* **2.** Галіна эканомікі, якая ўключае выпрацоўку, пераўтварэнне, перадачу і выкарыстанне розных відаў энергіі (у 1 знач.). *Атамная э.* ‖ *прым.* **энергеты́чны**, -ая, -ае. *Энергетычныя рэсурсы.*

**ЭНЕРГІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Поўны энергіі (у 2 знач.), дзейны, актыўны. *Э. кіраўнік. Энергічна* (прысл.) *дзейнічаць.* ‖ *наз.* **энергі́чнасць**, -і, *ж.*

**ЭНЕ́РГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Адна з асноўных уласцівасцей матэрыі — мера яе руху, а таксама здольнасць выконваць работу. *Э. вады. Ядзерная э. Эканомія энергіі.* **2.** Рашучасць і настойлівасць у рабоце, дзеяннях. *Працаваць з энергіяй.* ‖ *прым.* **энергеты́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**Э́НСКІ**, -ая, -ае. Ужыв. замест назвы, якая па пэўных прычынах павінна застацца невядомай (ад назвы лацінскай літары N). *Энская дывізія.*

**ЭНТАМАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Раздзел заалогіі, які вывучае насякомых. ‖ *прым.* **энтамалагі́чны**, -ая, -ае.

**ЭНТАМО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне энтамалогіі.

**ЭНТУЗІЯ́ЗМ**, -у, *м.* Душэўны ўздым, высокая ступень захаплення, натхнення. *Малады э.*

**ЭНТУЗІЯ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Чалавек, які дзейнічае з энтузіязмам, натхнёны чым-н., адданы справе, ідэі. ‖ *ж.* **энтузія́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ЭНЦЫКЛАПЕДЫ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Усебаковая адукаванасць, глыбокая дасведчанасць у розных галінах ведаў. ‖ *прым.* **энцыклапеды́чны**, -ая, -ае. *Энцыклапедычныя веды.*

**ЭНЦЫКЛАПЕДЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Усебакова адукаваны, дасведчаны чалавек. ‖ *ж.* **энцыклапеды́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **энцыклапеды́сцкі**, -ая, -ае.

**ЭНЦЫКЛАПЕ́ДЫЯ**, -і, *мн.* -і, -дый, *ж.* **1.** Навуковае або навукова-папулярнае даведачнае выданне па ўсіх або асобных галінах ведаў, звычайна ў выглядзе слоўніка. *Музычная э. Дзіцячая э.* **2.** Прыведзены ў сістэму агляд розных раздзелаў, галін якой-н. навукі, уводзіны ў курс якой-н. навукі (кніжн.). *Э. матэматычных ведаў.* ◊ **Хадзячая энцыклапедыя** (жарт.) — пра адукаванага чалавека, які валодае самымі рознымі ведамі. ‖ *прым.* **энцыклапеды́чны**, -ая, -ае. *Э. слоўнік.*

**ЭНЦЭФАЛІ́Т**, -у, *М* -ліце, *м.* Запаленне галаўнога мозга. ‖ *прым.* **энцэфалі́тны**, -ая, -ае.

**ЭПАЛЕ́Т**, -а, *М* -е́це, часцей *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Наплечны знак адрознення воінскага звання на ваеннай форме (уст.). **2.** Парадны пагон афіцэраў, генералаў і адміралаў, упрыгожаны махрамі, пазументамі (у некаторых арміях). **3.** Элемент дэкору адзення. ‖ *прым.* **эпале́тны**, -ая, -ае.

**ЭПАПЕ́Я**, -і, *мн.* -і, -пе́й, *ж.* **1.** Вялікі твор эпічнага жанру, у якім апісваюцца значныя гістарычныя падзеі. *Э. Івана Мележа «Людзі на балоце».* **2.** *перан.* Буйная, значная падзея, якая ахоплівае цэлы гістарычны перыяд. *Э. Вялікай Айчыннай вайны.* ‖ *прым.* **эпапе́йны**, -ая, -ае.

**Э́ПАС**, -у, *м.* **1.** Апавядальны род літаратуры (у адрозненне ад драмы і лірыкі) (спец.). **2.** Творы народнай творчасці — гераічныя сказанні, песні, паданні, аб'яднаныя агульнай тэмай, нацыянальнай прыналежнасцю, храналогіяй і пад. *Былінны э.* ‖ *прым.* **эпі́чны**, -ая, -ае. *Э. жанр.*

**ЭПАХА́ЛЬНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). Які вызначае эпоху; важны, значны. *Эпахальныя творы мастацкай літаратуры.* ‖ *наз.* **эпаха́льнасць**, -і, *ж.*

**ЭПІГО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Паслядоўнік якога-н. навуковага, палітычнага, мастацкага напрамку, пазбаўлены творчай арыгінальнасці, які механічна паўтарае ідэі і метады сваіх папярэднікаў. ‖ *прым.* **эпіго́нскі**, -ая, -ае.

**ЭПІГО́НСТВА**, -а, *н.* (кніжн.). Пераймальная, пазбаўленая творчай арыгінальнасці дзейнасць у якой-н. інтэлектуальнай сферы. ‖ *прым.* **эпіго́нскі**, -ая, -ае.

**ЭПІГРА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ра́м, *ж.* Кароткі сатырычны верш, які востра высмейвае якую-н. пэўную асобу. *Эпіграмы Кандрата Крапівы.* ‖ *прым.* **эпіграматы́чны**, -ая, -ае (спец.).

**ЭПІ́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Выслоўе, якое змяшчаецца перад творам або перад асобным яго раздзелам, у якім аўтар раскрывае сваю задуму, ідэю твора ці яго часткі. ‖ *прым.* **эпіграфі́чны**, -ая, -ае.

**ЭПІГРА́ФІКА**, -і, *ДМ* -фіцы, *ж.* Дапаможная гісторыка-філалагічная дысцыпліна, якая займаецца вывучэннем старажытных надпісаў на каменных плітах, скалах, на металічных, гліняных прадме-

тах і іншых вырабах. ‖ *прым.* **эпіграфічны**, -ая, -ае.

**ЭПІДЭМІЁЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Урач — спецыяліст у галіне эпідэміялогіі.

**ЭПІДЭ́МІЯ**, -і, *ж.* Шырокае распаўсюджанне якой-н. заразнай хваробы. *Э. халеры.* ‖ *прым.* **эпідэмі́чны**, -ая, -ае.

**ЭПІДЭМІЯЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Галіна медыцыны, якая вывучае прычыны ўзнікнення і распаўсюджання эпідэмій, распрацоўвае меры барацьбы з імі. ‖ *прым.* **эпідэміялагі́чны**, -ая, -ае.

**ЭПІЗАДЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Выпадковы, які з'яўляецца эпізодам (у 1 і 2 знач.), які бывае не пастаянна. *Эпізадычная дапамога. Э. кантроль. Прыязджаць эпізадычна* (прысл.). **2.** Неістотны. *Э. выпадак.* ‖ *наз.* **эпізады́чнасць**, -і, *ж.*

**ЭПІЗАО́ТЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Шырокае распаўсюджанне якой-н. заразнай хваробы сярод жывёл. *Э. яшчура.* ‖ *прым.* **эпізааты́чны**, -ая, -ае.

**ЭПІЗО́Д**, -у, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Асобнае здарэнне, выпадак. *Э. з турысцкіх успамінаў.* **2.** Нязначны, дробны выпадак. *Гэта ўсяго адзін э. з жыцця паляўнічага.* **3.** Фрагмент мастацкага твора, які мае пэўную самастойнасць і закончанасць. *Э. са спектакля.* ‖ *прым.* **эпізо́дны**, -ая, -ае.

**Э́ПІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Аўтар эпічных твораў.

**Э́ПІКА**, -і, *ДМ* э́піцы, *ж.* Сукупнасць эпічных твораў.

**ЭПІКУРЭ́ЕЦ**, -рэ́йца, *мн.* -рэ́йцы, -рэ́йцаў, *м.* **1.** Паслядоўнік эпікурэізму. **2.** Чалавек, які любіць камфорт і вышэй за ўсё ставіць асабістае задавальненне і пачуццёвую асалоду (кніжн.).

**ЭПІКУРЭІ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** У старажытнагрэчаскай і рымскай філасофіі, а пазней у Францыі 17 ст.: вучэнне, згодна з якім асновай шчасця чалавека з'яўляецца задавальненне жыццёвых патрэб, разумная асалода і пакой. **2.** Светапогляд, які ўзнік на глебе гэтага вучэння і бачыць сэнс жыцця ў асабістым задавальненні і камфорце (кніжн.). ‖ *прым.* **эпікурэ́йскі**, -ая, -ае.

**ЭПІКУРЭ́ЙСТВА**, -а, *н.* (кніжн.). Схільнасць да камфорту, імкненне да задавальнення жыццёвых патрэб. ‖ *прым.* **эпікурэ́йскі**, -ая, -ае.

**ЭПІЛЕ́ПСІЯ**, -і, *ж.* Хранічнае захворванне галаўнога мозга чалавека, якое характарызуецца сутаргавымі прыступамі і стратай прытомнасці; падучая хвароба. ‖ *прым.* **эпілепты́чны**, -ая, -ае.

**ЭПІЛЕ́ПТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Чалавек, хворы на эпілепсію. ‖ *ж.* **эпілепты́чка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак (разм.).

**ЭПІЛО́Г**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Заключная частка мастацкага твора. *Э. рамана. Э. оперы.* ‖ *прым.* **эпіло́гавы**, -ая, -ае.

**ЭПІ́СТАЛА**, -ы, *мн.* -ы, -тал, *ж.* Жанр літаратуры 18 — пачатку 19 ст., пасланне ў форме ліста.

**ЭПІСТАЛЯ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Пра літаратурны твор, напісаны ў форме лістоў. *Э. раман.* **2.** Які з'яўляецца сукупнасцю чыіх-н. лістоў. *Эпісталярная спадчына Янкі Купалы.*

**ЭПІТАЛА́МА**, -ы, *мн.* -ы, -ла́м, *ж.* **1.** У старажытных грэкаў і рымлян: віншавальная песня маладым. **2.** Верш-віншаванне ў гонар тых, хто бярэ шлюб. ‖ *прым.* **эпітала́мны**, -ая, -ае.

**ЭПІТА́ФІЯ**, -і, *мн.* -і, -фій, *ж.* (кніжн.). **1.** Верш, напісаны ў сувязі з чыёй-н. смерцю. *Э. на смерць палкаводца.* **2.** Надмагільны надпіс. *Э. на магільнай пліце.*

**ЭПІТЭ́ЛІЙ**, -ю, *м.* (спец.). Тканка, якая пакрывае паверхню цела, высцілае сценкі поласцей і ўнутраных полых органаў, слізістыя абалонкі чалавека і жывёл, а таксама покрыва з танкасценных клетак, якое высцілае некаторыя ўнутраныя поласці раслін. ‖ *прым.* **эпітэліяльны**, -ая, -ае.

**ЭПІ́ТЭТ**, -а, *М* -тэце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паэтычнае азначэнне, якое выражае эмацыянальную ацэнку або дае вобразную характарыстыку прадмету, з'яве.

**ЭПІЦЭ́НТР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). **1.** Вобласць на паверхні зямлі, размешчаная над ачагом землетрасення, выбуху і пад. *Э. ядзернага выбуху.* **2.** *перан.* Месца, дзе што-н. праяўляецца з найбольшай сілай (кніжн.). *У эпіцэнтры падзей.* ‖ *прым.* **эпіцэнтры́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЭПІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* эпас. **2.** *перан.* Поўны велічы і гераізму (кніжн.). *Эпічныя падзеі народнай гісторыі.* **3.** Велічнаспакойны; без эмоцый. *Эпічная манера выкладання.* ‖ *наз.* **эпі́чнасць**, -і, *ж.* (да 3 знач.).

**ЭПО́ХА**, -і, *ДМ* эпо́се, *мн.* -і, эпо́х, *ж.* Вялікі прамежак часу ў развіцці прыроды, грамадства, навукі і пад., які выдзяляецца па якіх-н. характэрных падзеях, з'явах. *Геалагічныя эпохі. Э. феадалізму. Савецкая э.*

**Э́РА**, -ы, *мн.* э́ры, эр, *ж.* **1.** Сістэма летазлічэння, якая вядзе свой пачатак ад пэўнага моманту. *Хрысціянская, або новая, наша, э. пачынаецца з даты нараджэння Ісуса Хрыста.* **2.** Вялікі гістарычны перыяд, які карэнным чынам адрозніваецца ад папярэдняга. *Э. касманаўтыкі.* **3.** Самы вялікі храналагічны падзел, значны этап у геалагічнай гісторыі Зямлі (спец.). *Палеазойская э. Мезазойская э. Кайназойская э.*

**ЭРАЗІ́ЙНЫ** *гл.* эрозія.

**ЭРАТАМА́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Чалавек, які пакутуе ад эратаманіі, схільны да эратаманіі. ‖ *ж.* **эратама́нка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак.

**ЭРАТАМА́НІЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Празмерна павышаная палавая ўзбудлівасць, хваравітая сексуальнасць.

**ЭРАТЫ́ЗМ**, -у, *м.* (кніжн.). Назва розных праяў палавой цягі і сексуальнасці; пачуццёвасць. *Падкрэслены э.* ‖ *прым.* **эраты́чны**, -ая, -ае.

**ЭРАТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** *гл.* эратызм, эротыка. **2.** Прасякнуты эратызмам. ‖ *наз.* **эраты́чнасць**, -і, *ж.*

**ЭРГ**, -а, *мн.* э́ргі, -аў, *м.* (спец.). Адзінка работы, энергіі і колькасці цеплаты.

**ЭРДЭЛЬТЭР'Е́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Парода сабак — вялікі службовы тэр'ер з густой шорсткай поўсцю, якая расце на мордзе ў выглядзе барады і вусоў. *Парода эрдэльтэр'ераў.*

**ЭРЗА́Ц**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* Непаўнацэнны заменнік чаго-н.; сурагат. *Э. ікры. Э. скуры.*

**Э́РКЕР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Паўкруглы, трохвугольны або мнагагранны зашклёны выступ у сцяне будынка. ‖ *прым.* **э́ркерны**, -ая, -ае.

**ЭРО́ЗІЯ**, -і, *ж.* Поўнае або частковае разбурэнне паверхні чаго-н. *Э. глебы.* ‖ *прым.* **эразі́йны**, -ая, -ае. *Эразійныя працэсы.*

**ЭРО́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* Павышаная пачуццёвасць, звернутая да палавога жыцця, аголенага цела і яго адлюстравання. ‖ *прым.* **эраты́чны**, -ая, -ае.

**ЭРУДЗІ́РАВАНЫ**, -ая, -ае. Дасведчаны, які валодае эрудыцыяй. *Э. чалавек.* ‖ *наз.* **эрудзі́раванасць**, -і, *ж.*

**ЭРУДЫ́Т**, -а, *М* -ды́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто мае вялікую эрудыцыю. ‖ *ж.* **эруды́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (разм.).

**ЭРУДЫ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Начытанасць, глыбокія і ўсебаковыя веды ў якой-н. ці многіх галінах навукі. *Чалавек з вялікай эрудыцыяй.*

**ЭРЫТРАЦЫ́ТЫ**, -аў, *адз.* -цы́т, -а, *М* -цы́це, *м.* Састаўная частка крыві — чырвоныя крывяныя цельцы, якія ўтрымліваюць гемаглабін. ‖ *прым.* **эрытрацы́тны**, -ая, -ае *і* **эрытрацыта́рны**, -ая, -ае.

**ЭСЕ́НЦЫЯ**, -і, *ж.* Канцэнтраваны раствор або моцны настой якога-н. лятучага рэчыва, які ўжыв. ў харчовай, фармацэўтычнай і парфумернай прамысловасці. *Воцатная э.*

**ЭСКА́ДРА**, -ы, *мн.* -ы, эска́др *і* -аў, *ж.* Буйное злучэнне ваенных караблёў ці самалётаў. ‖ *прым.* **эска́драны**, -ая, -ае. *Э. міналосец.*

**ЭСКАДРО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Падраздзяленне ў кавалерыі, якое адпавядае пяхотнай роце. ‖ *прым.* **эскадро́нны**, -ая, -ае.

**ЭСКАДРЫ́ЛЛЯ**, -і, *мн.* -і, -яў, *ж.* Падраздзяленне ў ваенна-паветраным флоце, якое ўваходзіць у састаў авіяцыйнага палка і складаецца з некалькіх звёнаў (атрадаў). ‖ *прым.* **эскадры́льны**, -ая, -ае.

**ЭСКАЛА́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Лесвіца з рухомымі прыступкамі для пад'ёму і спуску людзей, напр., у метро. ‖ *прым.* **эскала́тарны**, -ая, -ае.

**ЭСКАЛА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Паступовае павелічэнне, узмацненне, рост чаго-н. *Э. цэн. Э. ваенных дзеянняў.*

**ЭСКАЛО́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Падсмажаныя порцыі нятлустай свініны, бара-

ніны, цяляціны прадаўгаватай формы. || *прым.* **эскалóпны**, -ая, -ае.

**ЭСКА́РП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Супрацьтанкавая перашкода ў выглядзе спадзістай сценкі на схілах мясцовасці, звернутая ў бок праціўніка. || *прым.* **эска́рпавы**, -ая, -ае *і* **эска́рпны**, -ая, -ае.

**ЭСКАРПАВА́ЦЬ**, -пу́ю, -пу́еш, -пу́е; -пу́й; -пава́ны; *зак.* і *незак.*, *што* (спец.). Зрабіць (рабіць) эскарпы. *Э. мясцовасць.*

**ЭСКАРТАВА́ЦЬ**, -ту́ю, -ту́еш, -ту́е; -ту́й; -тава́ны; *зак.* і *незак.*, *каго-што* (кніжн.). Суправадзіць (суправаджаць) эскортам. *Э. караван суднаў.* || *наз.* **эскартава́нне**, -я, *н.*

**ЭСКІ́З**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Папярэдні накід да карціны, малюнка ці іх асобных частак. *Продаж эскізаў. Накідаць э. сукенкі.* **2.** План, накід літаратурнага ці музычнага твора і інш. || *прым.* **эскі́зны**, -ая, -ае. *Э. праект будынка.*

**ЭСКІ́ЗНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* эскіз. **2.** *перан.* Папярэдні, неканчатковы, зроблены ў агульных рысах. *Паказаць падзеі эскізна* (прысл.). || *наз.* **эскі́знасць**, -і, *ж.*

**ЭСКІМÓ**, *нескл.*, *н.* Сметанковае марожанае на палачцы, глазураванае шакаладам. *Цыліндрык э.*

**ЭСКІМÓСЫ**, -аў, *адз.* -мóс, -а, *м.* Народ, які складае карэннае насельніцтва тэрыторыі ад Грэнландыі, палярнага ўзбярэжжа Паўночнай Амерыкі да ўсходняга краю Чукоткі. || *ж.* **эскімóска**, -і, *ДМ* -мóсцы, *мн.* -і, -сак. || *прым.* **эскімóскі**, -ая, -ае.

**ЭСКÓРТ**, -у, *М* -рце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Суправаджэнне любога віду. *Ваенны э.* ○ **Ганаровы эскорт** — група матацыклістаў для суправаджэння афіцыйных замежных дэлегацый. || *прым.* **эскóртны**, -ая, -ае.

**ЭСКУ́ДА**, *нескл.*, *м.* (гіст.). Грашовая адзінка Партугаліі і некаторых іншых краін.

**ЭСКУЛА́П**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст., жарт.). Урач, доктар. *Уезны э.* || *прым.* **эскула́пскі**, -ая, -ае.

**ЭСМІ́НЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* Скарачэнне: эскадраны мінаносец.

**ЭСПАДРÓН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартыўная шабля, якая прымяняецца ў фехтаванні. || *прым.* **эспадрóнны**, -ая, -ае.

**ЭСПАНЬЁЛКА**, -і, *ДМ* -лцы, *мн.* -і, -лак, *ж.* Кароткая і вузкая клінападобная бародка.

**ЭСПЕРА́НТА**, *нескл.*, *н.* Штучная міжнародная мова, створаная на аснове граматычных і лексічных элементаў заходнееўрапейскіх моў. *Пісаць на э.*

**ЭСПЕРАНТЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па эсперанта; той, хто карыстаецца мовай эсперанта. || *ж.* **эсперанты́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **эсперанты́сцкі**, -ая, -ае.

**ЭСПЛАНА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -на́д (спец.). **1.** Шырокая вуліца з алеямі пасярэдзіне. **2.** Пустое, незабудаванае месца паміж сценамі крэпасці (уст.). **3.** Плошча перад вялікім будынкам.

**ЭСТАКА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, -ка́д, *ж.* **1.** Збудаванне ў выглядзе моста для падняцця шляхоў зносін над паверхняй зямлі, над вадой, якое дазваляе праезд або праход пад ім, а таксама збудаванне ўвогуле для падняцця дарогі на некаторую вышыню. **2.** Падводная загарода з паляў (спец.). || *прым.* **эстака́дны**, -ая, -ае. *Э. праезд.*

**ЭСТА́МП**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Карціна — адбітак якога-н. відарыса, здымак з гравюры. || *прым.* **эста́мпны**, -ая, -ае.

**ЭСТАФЕ́ТА**, -ы, *ДМ* -фе́це, *мн.* -ы, -фе́т, *ж.* **1.** Спаборніцтва спартыўных каманд на хуткасць (па бегу, плаванні і пад.), у якім адзін удзельнік на вызначаным участку змяняецца другім, перадаючы яму ўмоўны прадмет. **2.** (уст.). Пошта, адпраўленая конным пасланцом. *Адправіць эстафетай.* **3.** Прадмет (палачка, пакет і пад.), які перадаецца на такім спаборніцтве. *Лыжная э.* || *прым.* **эстафе́тны**, -ая, -ае (да 2 і 3 знач.).

**ЭСТÓНЦЫ**, -аў, *адз.* -нец, -нца, *м.* Народ угра-фінскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Эстоніі. || *ж.* **эстóнка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак. || *прым.* **эстóнскі**, -ая, -ае.

**ЭСТРА́ДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *ж.* **1.** Падмосткі для канцэртных выступленняў артыстаў. *Выйсці на эстраду.* **2.** Музычнае ці драматычнае мастацтва — выкананне невялікіх твораў на сцэне, эстрадзе. *Музыка для эстрады.* || *прым.* **эстра́дны**, -ая, -ае.

**ЭСТРА́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Артыст эстрады (у 2 знач.). || *ж.* **эстра́дніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЭСТЭ́Т**, -а, *М* -тэ́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Прыхільнік эстэтызму (у 1 знач.). **2.** Паклоннік усяго прыгожага. || *ж.* **эстэ́тка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. || *прым.* **эстэ́цкі**, -ая, -ае.

**ЭСТЭТЫ́ЗМ**, -у, *м.* **1.** Кірунак у еўрапейскім мастацтве, літаратуры 19 ст., які падкрэсліваў перавагу эстэтычных каштоўнасцей над этычнымі і сацыяльнымі праблемамі, выражаў тэндэнцыі еўрапейскага дэкадансу. **2.** Схільнасць да прыгожага, да эстэтычных форм. *Вытанчаны э.*

**ЭСТЭ́ТЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст па эстэтыцы.

**ЭСТЭ́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Філасофскае вучэнне пра сутнасць і формы прыгожага ў мастацкай творчасці, у прыродзе і жыцці, пра мастацтва як асобы від грамадскай ідэалогіі. *Курс эстэтыкі.* **2.** Сістэма чыіх-н. поглядаў на мастацтва. *Э. М.Багдановіча.* **3.** Прыгажосць, мастацкасць у афармленні, арганізацыі чаго-н. *Э. сталіцы.* || *прым.* **эстэты́чны**, -ая, -ае. *Эстэтычныя тэорыі.*

**ЭСТЭТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* эстэтыка. **2.** Прыгожы, звязаны з успрыманнем прыгожага ў жыцці і мастацтве. *Эстэтычнае задавальненне. Э. густ.* || *наз.* **эстэты́чнасць**, -і, *ж.*

**ЭСТЭ́ЦТВА**, -а, *н.* (кніжн.). Паводзіны і спосаб дзеянняў эстэта (у 1 знач.), захапленне эстэтызмам (у 1 знач.).

**ЭСЭ́**, *нескл.*, *н.* (кніжн.). Празаічны нарыс невялікага аб'ёму і вольнай кампазіцыі на прыватную тэму. *Філасофскае э.* || *прым.* **эсэісты́чны**, -ая, -ае.

**ЭСЭІ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* (кніжн.). Той, хто піша эсэ. || *ж.* **эсэі́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так.

**ЭСЭ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (гіст.). Скарачэнне «сацыяліст-рэвалюцыянер» — прадстаўнік палітычнай партыі. || *ж.* **эсэ́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак. || *прым.* **эсэ́раўскі**, -ая, -ае.

**ЭСЭ́САВЕЦ**, -саўца, *мн.* -саўцы, -саўцаў, *м.* У фашысцкай Германіі: ваеннаслужачы нямецкіх фашысцкіх ахоўных атрадаў ці спецыяльных часцей СС. || *ж.* **эсэ́саўка**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, эсэ́савак. || *прым.* **эсэ́саўскі**, -ая, -ае.

**ЭТАЖЭ́РКА**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Прадмет мэблі ў выглядзе некалькіх паліц, размешчаных адна над адной на стойках. || *прым.* **этажэ́рачны**, -ая, -ае (да 1 знач.).

**ЭТАЛÓГІЯ**, -і, *ж.* Навука аб паводзінах жывёл у натуральных умовах. || *прым.* **эталагі́чны**, -ая, -ае.

**ЭТАЛÓН**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Дакладны ўзор установленай адзінкі вымярэння, сама такая дакладная мера. **2.** *перан.* Узор, стандарт для параўнання з чым-н. (кніжн.). *Быць эталонам для каго-н.* || *прым.* **эталóнны**, -ая, -ае.

**ЭТА́П**, -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Асобны момант, стадыя якога-н. працэсу. *Новы э. развіцця. Новы э. будаўніцтва горада.* **2.** Пункт на шляху руху войск, дзе ваеннаслужачыя забяспечваюцца харчамі, фуражом, начлегам. **3.** Пункт для начлегу на шляху партый арыштантаў, а таксама маршрут іх руху да месца ссылкі і сама група, партыя арыштантаў. **4.** Асобная частка шляху, а таксама (спец.) пэўны адрэзак дыстанцыі ў спартыўных спаборніцтвах. *Этапы велагонкі.* ◊ **Па этапе** або **этапам** — пад канвоем (пра спосаб перасылкі арыштантаў). **Пройдзены этап** — пра тое, што зроблена, засталося ў мінулым. || *прым.* **эта́пны**, -ая, -ае.

**ЭТНА...** Першая састаўная частка складаных слоў са знач.: які мае адносіны да народа, напр.: *этнадэмаграфія, этнакультуразнаўчы, этналінгвістыка, этнамоўны, этнамузыказнаўства, этнапсіхалогія, этнасацыялогія.*

**ЭТНАГЕАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* Навуковая дысцыпліна, што знаходзіцца на стыку этнаграфіі з геаграфіяй і вывучае размяшчэнне этнічных супольнасцей, асаблівасці іх рассялення і тэрытарыяльных узаемаадносін у цеснай залежнасці ад сацыяльна-эканамічных, палітычных, пры-

родных і іншых фактараў. || *прым.* **этнагеаграфічны**, -ая, -ае.

**ЭТНАГЕНЕ́З**, -у, *м.* (спец.). Паходжанне народаў. *Э. славян.* || *прым.* **этнагенетычны**, -ая, -ае.

**ЭТНАГРА́ФІЯ**, -і, *ж.* **1.** Навука, якая вывучае матэрыяльную і духоўную культуру народаў. **2.** Асаблівасці быту, нораваў, культуры, звычаяў якога-н. народа, народнасці, мясцовасці і пад. *Э. палескага краю.* || *прым.* **этнаграфічны**, -ая, -ае.

**ЭТНАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* Навука, якая даследуе народы, іх паходжанне (этнагенез), рассяленне, побыт і культуру; этнаграфія (у 1 знач.). || *прым.* **этналагічны**, -ая, -ае.

**ЭТНАНІ́МІКА**, -і, *ДМ* -міцы, *ж.* Раздзел анамастыкі, які вывучае назвы нацый, народаў, народнасцей, плямёнаў і г.д. || *прым.* **этнанімічны**, -ая, -ае.

**Э́ТНАС**, -у, *м.* (спец.). Від устойлівай сацыяльнай групоўкі людзей, што ўзнік гістарычна (племя, народнасць, нацыя).

**ЭТНІ́ЧНЫ**, -ая, -ае. Які мае адносіны да якога-н. народа. *Э. склад насельніцтва.* ○ **Этнічная супольнасць** — устойлівая сацыяльная група людзей (племя, народнасць, нацыя), якая ўзнікла гістарычна.

**ЭТНО́ГРАФ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне этнаграфіі.

**ЭТНО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне этналогіі.

**ЭТО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне эталогіі.

**ЭТРУ́СКІ**, -аў, *адз.* этру́ск, -а, *м.* Старажытныя плямёны, якія насялялі ў 1-м тысячагоддзі да н.э. паўночны захад Апенінскага паўвострава. || *прым.* **этру́скі**, -ая, -ае. *Этруская мова.*

**Э́ТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* **1.** Філасофскае вучэнне аб маралі, яе развіцці, прынцыпах, нормах і ролі ў грамадстве. **2.** Сукупнасць норм паводзін, мараль якой-н. грамадскай групы. *Навуковая э.* || *прым.* **эты́чны**, -ая, -ае.

**ЭТЫКЕ́Т**, -у, *М* -ке́це, *м.* Устаноўлены парадак паводзін, формы абыходжання ў якім-н. асяроддзі, грамадстве. *Дыпламатычны э.* || *прым.* **этыке́тны**, -ая, -ае.

**ЭТЫКЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* Ярлык на чым-н. з фабрычным, гандлёвым кляймом, подпісам і пад. *Э. на бутэльцы.* || *прым.* **этыке́тачны**, -ая, -ае.

**ЭТЫ́Л**, -у, *м.* Група з атамаў вугляроду і вадароду, якая ўваходзіць у састаў многіх арганічных злучэнняў. || *прым.* **эты́лавы**, -ая, -ае. *Э. спірт.*

**ЭТЫЛЕ́Н**, -у, *м.* Бясколерны газ, які складаецца з вугляроду і вадароду і выкарыстоўваецца для атрымання поліэтылену, этылавага спірту і інш. || *прым.* **этыле́навы**, -ая, -ае.

**ЭТЫМАЛАГІЗАВА́ЦЬ**, -зу́ю, -зу́еш, -зу́е; -зу́й; -зава́ны; *незак., што* і *без дап.* (спец.). Займацца этымалагізацыяй; устанавіць этымалогію. || *наз.* **этымалагізава́нне**, -я, *н.*

**ЭТЫМАЛАГІЗА́ЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Устанаўленне этымалогіі якога-н. слова.

**ЭТЫМАЛО́ГІЯ**, -і, *ж.* **1.** Раздзел мовазнаўства, які вывучае паходжанне і роднасныя сувязі слоў. **2.** Паходжанне таго або іншага слова ці выразу. ○ **Народная этымалогія** (спец.) — памылковае пераасэнсаванне запазычанага слова шляхам устанаўлення сувязі з вядомым словам роднай мовы на аснове некаторых агульных прымет, без уліку рэальных фактаў паходжання. || *прым.* **этымалагічны**, -ая, -ае. *Э. слоўнік.*

**ЭТЫМО́ЛАГ**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяліст у галіне этымалогіі (у 1 знач.).

**ЭТЫМО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У мовазнаўстве: першапачатковае, зыходнае значэнне слова і яго форма.

**ЭТЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* этыка. **2.** Які адпавядае правілам этыкі (у 2 знач.). *Э. ўчынак. Этычна* (прысл.) *паводзіць сябе.* || *наз.* **эты́чнасць**, -і, *ж.*

**ЭЎКАЛІ́ПТ**, -а *і* -у, *М* -пце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а. Паўднёвае вечназялёнае дрэва, якое вельмі хутка расце і дасягае вялікіх памераў. **2.** -у, *адз.* Драўніна гэтага дрэва. || *прым.* **эўкалі́птавы**, -ая, -ае.

**Э́ЎРЫКА**, *выкл.* **1.** Легендарны вокліч Архімеда (літаральна «Знайшоў!») з нагоды адкрыцця ім гідрастатычнага закону. **2.** Агульнаўжывальны вокліч, які выражае задавальненне, радасць пры знойдзеным рашэнні цяжкай задачы, пры ўзнікненні ўдалай думкі і пад.

**ЭЎРЫ́СТЫКА**, -і, *ДМ* -тыцы, *ж.* (спец.). **1.** Сукупнасць даследчых метадаў, якія выкарыстоўваюцца для адкрыцця раней невядомага. **2.** Метад навучання пры дапамозе навадных пытанняў, дыялогаў, які стымулюе ў вучняў развіццё актыўнага пошуку рашэнняў, а таксама тэорыя такой методыкі. || *прым.* **эўрысты́чны**, -ая, -ае. *Эўрыстычныя метады навучання.*

**ЭЎФЕМІ́ЗМ**, -а, *м.* (кніжн.). Слова або выраз, якія замяняюць грубы, непажаданы сэнс. || *прым.* **эўфемісты́чны**, -ая, -ае.

**ЭФЕ́КТ**, -у, *М* -кце, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Уражанне, зробленае кім-, чым-н. на каго-н. *Яго словы мелі незвычайны э.* **2.** Вынік якіх-н. дзеянняў, якой-н. дзейнасці. *Э. ад прымянення новай апаратуры. Э. лячэння.* **3.** Сродак, пры дапамозе якога ствараюцца пэўныя ўражанні. *Эфекты дажджу ў тэатры.*

**ЭФЕ́КТНЫ**, -ая, -ае. Які стварае эфект (у 1 знач.), прыцягвае ўвагу. *Э. гарнітур.* || *ж.* **эфе́ктнасць**, -і, *ж.*

**ЭФЕКТЫ́ЎНЫ**, -ая, -ае. Які дае эфект (у 2 знач.); дзейсны, выніковы. *Э. спосаб гаспадарання.* || *наз.* **эфекты́ўнасць**, -і, *ж.*

**ЭФЕМЕ́РНЫ**, -ая, -ае (кніжн.). **1.** Часовы, недаўгавечны. *Эфемерныя радасці.* **2.** Нерэальны, уяўны. *Эфемерная задума.* || *наз.* **эфеме́рнасць**, -і, *ж.*

**ЭФЕ́С**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Ручка халоднай зброі (шаблі, шпагі і пад.). || *прым.* **эфе́сны**, -ая, -ае.

**ЭФІО́ПЫ**, -аў, *адз.* эфіо́п, -а, *м.* Агульная назва насельніцтва Эфіопіі. || *ж.* **эфіо́пка**, -і, *ДМ* -пцы, *мн.* -і, -пак. || *прым.* **эфіо́пскі**, -ая, -ае.

**ЭФІ́Р**, -у, *м.* **1.** *мн.* -ы, -аў. Арганічнае злучэнне, якое ўтрымлівае кісларод (спец.). *Простыя эфіры.* **2.** Асобае суцэльнае асяроддзе, што, паводле старых тэорый фізікі, запаўняе сусветную прастору (уст.). **3.** Прастора як распаўсюджвальнік радыёхваль. *У эфіры гучыць музыка.* **4.** У старажытнагрэчаскай міфалогіі — самы верхні, чысты і празрысты слой паветра, месцазнаходжанне багоў. || *прым.* **эфі́рны**, -ая, -ае. *Э. час.*

**ЭФІРАНО́С**, -у, *м.* Эфіраносная расліна.

**ЭФІРАНО́СНЫ**, -ая, -ае. Які ўтрымлівае эфірны алей. *Эфіраносныя расліны.* || *наз.* **эфірано́снасць**, -і, *ж.*

**ЭФІ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* эфір. **2.** *перан.* Бесцялесны, незямны (кніжн., іран.). *Эфірнае стварэнне.* || *наз.* **эфі́рнасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ЭХ**, *выкл.* (разм.). Ужыв. пры выражэнні раптоўнага здзіўлення, папроку, прыкрасці, шкадавання. *Эх і надвор'е! Эх, сынок, сынок...*

**ЭЦЮ́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** У выяўленчым мастацтве: твор, выкананы з натуры, які з'яўляецца першапачатковым накідам, эскізам, часткай будучага кампазіцыйнага цэлага. **2.** *мн.* Маляванне фарбамі з натуры для практыкавання, загатоўкі эскізаў. *Пайсці на эцюды.* **3.** Невялікі твор навуковага, крытычнага і пад. характару, прысвечаны якому-н. асобнаму пытанню. *Лінгвістычныя эцюды.* **4.** Музычны твор віртуознага характару. *Эцюды Чэрні для цымбалаў.* **5.** Від задання (у музыцы, шахматнай гульні і пад.). *Зборнік эцюдаў для шахматыстаў.* **6.** Практыкаванне (звычайна імправізацыйнага характару), якое служыць для развіцця і ўдасканальвання тэхнікі артыстычнага майстэрства. *Паказаць э.* || *прым.* **эцю́дны**, -ая, -ае (да 1, 3—5 знач.).

**ЭЦЮ́ДНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Спецыяльная плоская скрынка з прыладамі для жывапісу, малявання і месцам для захоўвання эцюдаў.

**ЭШАЛО́Н**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Баявое, аператыўнае пастраенне. **2.** Цягнік, а таксама іншы від транспарту спецыяльнага прызначэння для масавых перавозак. *Воінскі э. Э. з нафтай.* || *прым.* **эшало́нны**, -ая, -ае.

**ЭШАФО́Т**, -а, *М* -фо́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Памост для пакарання. *Э. з шыбеніцаю.* ◊ **Узысці на эшафот** — прынесці сваё жыццё ў ахвяру чаму-н. || *прым.* **эшафо́тны**, -ая, -ае.

# Ю

**ЮА́НЬ**, -я, *мн.* -і, -яў, *м.* Грашовая адзінка Кітайскай Народнай Рэспублікі.

**ЮБІЛЕ́Й**, -ю, *мн.* -і, -яў, *м.* **1.** Гадавіна чыйго-н. жыцця, чыёй-н. дзейнасці, існавання каго-, чаго-н. (звычайна дзесяці-, дваццаціголддзе і пад.). *Пяцідзесяцігадовы ю. пісьменніка.* **2.** Урачыстасці, прысвечаныя такой гадавіне. *Запрасіць на ю.* ‖ *прым.* **юбіле́йны**, -ая, -ае. *Ю. медаль. Юбілейныя дні.*

**ЮБІЛЯ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Той, чый юбілей адзначаецца, святкуецца. *Акадэмік-ю. Горад-ю. Віншаваць юбіляра.* ‖ *ж.* **юбіля́рка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак (разм.).

**ЮВЕЛІ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Майстар, які вырабляе прадметы мастацтва, упрыгожанні і пад. з каштоўных металаў, з каштоўнымі камянямі, або прадавец такіх прадметаў.

**ЮВЕЛІ́РНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да вырабаў з каштоўных металаў і камянёў. *Ювелірная майстэрня. Ювелірныя вырабы.* **2.** *перан.* Тонкі, дасканалы, такі, як у ювеліра; умела і старанна апрацаваны. *Ювелірная работа. Ювелірнае выкананне.*

**Ю́ДА** *і* **ІУ́ДА**, -ы, *м.* (пагард.). Здраднік [ад імені апостала Юды Іскарыёта, які, паводле евангельскай легенды, прадаў Ісуса Хрыста].

**ЮДАФО́Б**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Тое, што і *антысеміт.* ‖ *ж.* **юдафо́бка**, -і, *ДМ* -бцы, *мн.* -і, -бак. ‖ *прым.* **юдафо́бскі**, -ая, -ае.

**ЮДО́ЛЬ**, -і, *ж.* **1.** Даліна, лог (уст.). **2.** У некаторых выразах: месца, дзе пакутуюць, церпяць мукі, а таксама ўвогуле пра жыццё з яго клопатамі і смуткам (уст., кніжн.). *Ю. смутку. Ю. плачу. Зямная ю.*

**ЮЗ**, -а, *м.* Слізганне колаў, якія пераспалі круціцца. *Машына ідзе юзам.*

**Ю́КАЛА**, -ы, *ж.* На Поўначы і Далёкім Усходзе: вяленая рыба.

**ЮН...** Першая частка складаных слоў у знач. юны, напр.: *юннат* (юны натураліст), *юнкар* (юны карэспандэнт), *юнкараўскі.*

**ЮНА́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* Чалавек мужчынскага полу ва ўзросце паміж маленствам і дарослацю. ‖ *прым.* **юна́цкі**, -ая, -ае *і* (разм.) **юна́чы**, -ая, -ае.

**ЮНА́ЦКАСЦЬ**, -і, *ж.* Уласцівасць юнацкага; маладосць. *Ю. душы.*

**ЮНА́ЦТВА**, -а, *н.* **1.** Перыяд жыцця пасля маленства да сталасці. *Гады юнацтва.* **2.** *зб.* Юнакі і дзяўчаты; моладзь. *Часопіс для юнацтва.*

**Ю́НГА**, -і, *мн.* -і, -аў, *м.* Падлетак на судне, які вывучае марскую справу, а таксама, у некаторых замежных флатах, малодшы матрос.

**ЮНІЁ́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спартсмен-юнак, удзельнік спаборніцтваў у сваёй узроставай групе. *Спартакіяда юніёраў.* ‖ *ж.* **юніёрка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* ‖ *прым.* **юніёрскі**, -ая, -ае.

**Ю́НКЕР**[1], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* У царскай Расіі: выхаванец ваеннага вучылішча. ‖ *прым.* **ю́нкерскі**, -ая, -ае. *Юнкерскае вучылішча.*

**Ю́НКЕР**[2], -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Назва буйных памешчыкаў у Германіі. ‖ *прым.* **ю́нкерскі**, -ая, -ае. *Юнкерскае землеўладанне.*

**ЮННА́Т**, -а, *М* -на́це, *мн.* -ы, -аў, *м.* Скарачэнне: юны натураліст, удзельнік гуртка па вывучэнні прыроды. ‖ *прым.* **юнна́цкі**, -ая, -ае. *Юннацкая работа.*

**Ю́НЫ**, -ая, -ае. **1.** Які не дасягнуў сталага ўзросту. *Ю. ўзрост. Юнае пакаленне. Ю. натураліст* (юннат). **2.** Уласцівы маладым, маладосці. *Юныя сілы.*

**ЮПІ́ТАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Магутная электрычная асвятляльная прылада для кіназдымкі пры штучным або камбінаваным асвятленні.

**ЮР**, -у, *м.* Павышанае імкненне да задавальнення плоцевых пачуццяў. *На яго напаў ю.*

**Ю́Р'ЕЎ**, -ва. У выразе: **вось табе, бабка, і Юр'еў дзень** — пра нечакана страчаную надзею, спыненне свабодных дзеянняў і пад. [першапачаткова пра непрыемнасць, якая ўзнікла ў сувязі з абмежаваннем свабоды дзеянняў, перамяшчэння і пад.; звязана з адменай у канцы 16 ст. права прыгонных пераходзіць ад аднаго памешчыка да другога ў асеннiя свята Святога Юрыя].

**ЮРЛІ́ВЕЦ**, -іўца, *мн.* -іўцы, -іўцаў, *м.* Чалавек, якому ўласціва павышанае імкненне да задавальнення палавых пачуццяў.

**ЮРЛІ́ВЫ**, -ая, -ае. Пажадлівы, поўны юру; які выражае юр. *Ю. чалавек. Юрлівая ўсмешка.* ‖ *наз.* **юрлі́васць**, -і, *ж.*

**ЮРО́ДЗІВЫ**, -ая, -ае. **1.** Дурнаваты, блізкі да вар'яцтва. *Ю. хлопец.* **2.** *у знач. наз.* **юро́дзівы**, -ага, *мн.* -ыя, -ых, *м.* Ва ўяўленні рэлігійных людзей: вар'ят, які валодае дарам прадказання.

**ЮРО́ДСТВА**, -а, *н.* **1.** Стан бессвядомасці, вар'яцтва. **2.** Недарэчны ўчынак, неразумныя паводзіны. *Рабіць ю.*

**ЮРО́ДСТВАВАЦЬ**, -твую, -твуеш, -твуе; -твуй; *незак.* (неадабр.). Паводзіць сябе падобна юродзіваму (у 1 знач.).

**Ю́РТА**, -ы, *ДМ* юрце, *мн.* -ы, -аў, *ж.* Пераноснае, конусападобнай формы жыллё, крытае шкурамі ў некаторых качавых народаў Азіі і Паўднёвай Сібіры. ‖ *прым.* **ю́ртавы**, -ая, -ае.

**ЮРЫДЫ́ЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да права[1] (у 1 знач.), прававы. *Ю. доказ. Юрыдычная тэрміналогія. Юрыдычная кансультацыя. Юрыдычная асоба.* **2.** Які адносіцца да работы юрыста. *Юрыдычная практыка.*

**ЮРЫСДЫ́КЦЫЯ**, -і, *ж.* (спец.). Правамоцнасць праводзіць суд, рашаць прававыя пытанні. *Валодаць юрысдыкцыяй. Падлягаць чыёй-н. юрысдыкцыі.*

**ЮРЫСКО́НСУЛЬТ**, -а, *М* -льце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Асоба, якая з'яўляецца пастаянным кансультантам ва ўстанове па пытаннях права і выступае абаронцам яе інтарэсаў у юрыдычных арганізацыях. *Ю. фабрыкі.* ‖ *прым.* **юрыско́нсульцкі**, -ая, -ае.

**ЮРЫСПРУДЭ́НЦЫЯ**, -і, *ж.* (кніжн.). Сукупнасць юрыдычных навук, а таксама практычная дзейнасць юрыстаў.

**ЮРЫ́СТ**, -а, *М* -сце, *мн.* -ы, -аў, *м.* Спецыяліст па юрыдычных навуках, юрыдычных пытаннях. ‖ *ж.* **юры́стка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так (разм.).

**ЮС**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Назва дзвюх літар у старaславянскім алфавіце, якія абазначалі насавыя галосныя. *Юс вялікі* (абазначаў гук «о» насавое). *Юс малы* (абазначаў гук «е» насавое).

**ЮСТЫ́ЦЫЯ**, -і, *ж.* Сістэма судовых устаноў, а таксама сфера іх дзейнасці. *Міністэрства юстыцыі.*

**Ю́ТРАНЬ**, -і, *ж.* Ранішняя царкоўная служба. *Пайсці на ю.*

**ЮХТ**, -у, *М* юхце, *м.* Сорт моцнай і тоўстай спецыяльна апрацаванай скуры. *Боты з юхту.* ‖ *прым.* **юхто́вы**, -ая, -ае.

**Ю́ШКА**[1], -і, *ДМ* юшцы, *мн.* -і, -шак, *ж.* Металічны кружок або чатырохвугольная пласціна, якімі закладаюць адтуліну ў коміне, каб не выходзіла цёплае паветра. ‖ *прым.* **ю́шачны**, -ая, -ае.

**Ю́ШКА**[2], -і, *ДМ* юшцы, *ж.* **1.** Страва са свежай рыбы з прыправамі; рыбны адвар. *Акунёвая ю.* **2.** Поліўка (у 1 знач.). *Грыбная ю.* **3.** Жыжка ва ўсякай страве. *Сёрбай юшку, на дне гушча!* (з нар.). **4.** *перан.* Кроў (разм.). *Сунуў кулаком у нос і спусціў яму юшку.*

# Я

**Я**, мяне́, мне, мяне́, мной (-о́ю), аба мне, *займ. асаб. 1 ас. адз.* **1.** Служыць для абазначэння тым, хто гаворыць, самога сябе. *Я не я і кабыла не мая* (прыказка: нічога не ведаю, ні да чаго не маю дачынення). **2.** *у знач. наз., нескл., н.* Ужыв. для абазначэння самога сябе як асобы. *Маё чалавечае «я». Паказаць сваё «я»* [а) поўнасцю выявіць свае якасці, магчымасці, здольнасці; б) настаяць на сваім]. ◊ **Вось я цябе (яго, яе, вас, іх)!** (разм.) — пагражальны вокрык ці заўвага.

**Я́БЛЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Плод яблыні. *Летні сорт яблыкаў. Я. ад яблыні недалёка адкочваецца* (прыказка пра таго, хто атрымаў у спадчыну дрэнныя звычкі ад бацькі, маці). ○ **Адамаў яблык** — кадык. **Вочны яблык** — шарападобнае цела вока. ◊ **У яблыкі** — з цёмнымі круглымі плямамі на поўсці (пра коней). **Яблыку няма дзе ўпасці** — надта цесна. **Яблык разладу** (кніжн.) — прычына, прадмет спрэчкі, сваркі, разладу [паводле старажытнага грэчаскага міфа пра кінуты багіняй разладу Эрыдай яблык з надпісам «найпрыгажэйшай» і як з-за гэтага ўзнікла спрэчка паміж багінямі Герай, Афінай і Афрадытай]. ‖ *памянш.* **я́блычак**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* ‖ *прым.* **я́блычны**, -ая, -ае. *Я. сок* (з яблыкаў).

**Я́БЛЫНЯ**, -і, *мн.* -і, -лынь, *ж.* Пладовае дрэва сямейства ружакветных з ядомымі круглымі салодкімі або кісла-салодкімі пладамі. ‖ *памянш.* **я́блынька**, -і, *ДМ* -ньцы, *мн.* -і, -нек, *ж.* ‖ *прым.* **я́блыневы**, -ая, -ае.

**Я́БЛЫЧАК**, -чка, *мн.* -чкі, -чкаў, *м.* **1.** *гл.* яблык. **2.** Цэнтр мішэні (у 1 знач.) у выглядзе чорнага круга. *Папасці (пацэліць, трапіць) у самы я.* (таксама перан.: дакладна, правільна ўгадаць, сказаць і пад., разм.).

**Я́ВА**, -ы, *ж.* Тое, што сапраўды існуе або існавала; рэальнасць, рэчаіснасць, а не сон ці мара. *Мара стала явай.*

**Я́ВАР**, -а *і* -у, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** -а *і (зб.)* -у. Дрэва сямейства кляновых; белы клён. **2.** -у; толькі *адз.* Драўніна гэтага дрэва. ‖ *прым.* **я́варавы**, -ая, -ае.

**Я́ВАЧНЫ**, -ая, -ае. **1.** Які мае адносіны да яўкі (у 1 знач.). *Явачныя дні.* **2.** Які мае адносіны да яўкі (у 2 знач.). *Явачная кватэра.* ◊ **Явачным парадкам** — без папярэдняй згоды, дазволу. *Усяліцца ў дом явачным парадкам.*

**ЯВІ́ЦЦА**, яўлю́ся, я́вішся, я́віцца; *зак.* (разм.). Прыйсці куды-н., з'явіцца дзе-н. *Я. ў суд.* ‖ *незак.* **яўля́цца**, -я́юся, -я́ешся, -я́ецца. ‖ *наз.* **я́ўка**, -і, *ДМ* я́ўцы, *ж.*

**ЯГА́**, -і́, *ДМ* язе́, *ж.* Баба Яга (уласная назва казачнай істоты); баба-яга (агідная старая).

**Я́ГАДА**, -ы, *ДМ* -дзе, *мн.* -ы, я́гад, *ж.* Невялікі сакавіты плод кустовых і травяністых раслін. *Ягады малін.* ◊ **Аднаго поля ягады** (разм., звычайна неадабр.) — зусім свой па духу, паводзінах чалавек. ‖ *памянш.* **я́гадка**, -і, *ДМ* -дцы, *мн.* -і, -дак, *ж.* ‖ *прым.* **я́гадны**, -ая, -ае. *Я. год.*

**Я́ГАДЗІЦА**, -ы, *ж.* **1.** *мн.* я́гадзіцы, -дзіц. Задняя мясістая частка тулава чалавека; сядалішча. **2.** Палавіна гэтай часткі тулава ў форме паўшар'я. ‖ *прым.* **я́гадзічны**, -ая, -ае.

**Я́ГАДНІК**, -а *і* -у, *м.* **1.** -у, *мн.* -і, -аў. Месца, дзе растуць і разводзяцца ягады. **2.** -а, *мн.* -і, -аў. Той, хто збірае або любіць збіраць ягады (разм.). ‖ *ж.* **я́гадніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц (да 3 знач.). ‖ *прым.* **я́гаднікавы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**ЯГАМО́СЦЬ**, -і, *ж. і* -я, *м.*, *мн.* -і, -яў (уст.). Форма звароту да каго-н.; пан, васпан. *Сядайце за стол, ягамосці.*

**ЯГДТА́Ш**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Паляўнічая сумка для дзічыны.

**Я́ГЕЛЬ**, -ю, *м.* Род лішайніку ў выглядзе маленькіх шэрых кусцікаў, якія растуць у тундры і на тарфяных балотах, так званы аленевы мох. ‖ *прым.* **я́гельны**, -ая, -ае. *Ягельнае покрыва. Ягельная тундра.*

**ЯГНІ́ЦЦА**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -і́цца; *незак.* Пра авечку: нараджаць ягня, каціцца[2]. ‖ *зак.* **аягні́цца**, -і́цца. ‖ *наз.* **ягне́нне**, -я, *н.*

**ЯГНЯ́** *і* **ЯГНЁ**, -ня́ці, *мн.* -ня́ты, -ня́т, *н.* Дзіцяня авечкі. ‖ *прым.* **ягня́чы**, -ая, -ае.

**ЯГО́. 1.** *гл.* ён. **2.** *займ. прынал.* Які належыць яму. *Яго сям'я.*

**ЯГО́НЫ**, -ая, -ае; *займ. прынал.* (разм.). Тое, што і *яго* (у 2 знач.).

**ЯГУА́Р**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Буйная драпежная жывёліна сямейства кашэчых з чырванавата-жоўтай поўсцю ў чорныя плямы. ‖ *прым.* **ягуа́равы**, -ая, -ае.

**ЯД**, -у, *М* я́дзе, *м.* **1.** Рэчыва, здольнае выклікаць атручэнне, смерць. *Смяротны яд. Пчаліны яд. Яд сумненняў* (перан.). **2.** *перан.* Злосць, з'едлівасць. *Кожны гад мае свой яд* (прыказка).

**ЯДА́**, -ы́, *ДМ* ядзе́, *ж.* **1.** *гл.* есці. **2.** Тое, што і *ежа. Хлеб ды вада — маладзецкая я.* (прыказка).

**ЯДАВІ́ТЫ**, -ая, -ае. **1.** Які з'яўляецца ядам (у 1 знач.), які выклікае атручэнне. *Ядавітыя рэчывы. Я. грыб. Я. газ.* **2.** *перан.* Зласлівы, з'едлівы. *Ядавітая іронія. Я. чалавек. Ядавіта* (прысл.) *сказаць.* **3.** Пра колер, пах: непрыемны, рэзкі (разм.). ‖ *наз.* **ядаві́тасць**, -і, *ж.*

**ЯДАХІМІКА́ТЫ**, -аў, *адз.* ядахіміка́т, -у, *М* -ка́це, *м.* Ядавітыя рэчывы, якія прымяняюцца для барацьбы з пустазеллем, са шкоднікамі сельскагаспадарчых раслін. ‖ *прым.* **ядахіміка́тны**, -ая, -ае.

**Я́ДЗЕРКА**, -а, *мн.* -і, -рак, *н.* **1.** *гл.* ядро. **2.** Шарападобнае цельца ўнутры ядра клеткі (спец.).

**Я́ДЗЕРНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* ядро. **2.** Які мае адносіны да працэсаў, што адбываюцца ў атамным ядры, да іх вывучэння і выкарыстання. *Я. рэактар. Ядзернае выпрамяненне. Ядзерная зброя. Ядзерная фізіка. Ядзерная рэакцыя* (рэакцыя пераўтварэння ядзер атамаў пры іх узаемадзеянні адзін з другім). **3.** Які мае адносіны да ядзернай зброі, да валодання такой зброяй. *Ядзерныя запасы. Ядзерныя краіны.*

**Я́ДЗЕРЦА** *гл.* ядро.

**Я́ДЗЕРШЧЫК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Спецыяліст па ядзернай фізіцы.

**ЯДЛО́ВЕЦ**, -ло́ўцу, *м.* Хваёвы куст, радзей дрэва сямейства кіпарысавых. ‖ *прым.* **ядлаўцо́вы**, -ая, -ае *і* **ядло́ўцавы**, -ая, -ае.

**ЯДНА́ННЕ**, -я, *н.* **1.** *гл.* яднацца, яднаць. **2.** Цесная сувязь, якая прыводзіць да адзінства, згуртаванасці.

**ЯДНА́ЦЦА**, -а́юся, -а́ешся, -а́ецца; *незак.* **1.** Злучацца, збліжацца, утвараючы адзінае цэлае. *Дзве брыгады яднаюцца.* **2.** Аб'ядноўвацца, згуртоўвацца для агульных дзеянняў. *Народы яднаЛіся ў барацьбе з агульным ворагам.* **3.** Уступіць у блізкія, сяброўскія адносіны, падтрымліваць сувязь з кім-н. *Суседзі яднаюцца.* ‖ *наз.* **ядна́нне**, -я, *н.*

**ЯДНА́ЦЬ**, -а́ю, -а́еш, -а́е; *незак.* **1.** *што.* Злучаць, звязваць што-н. з чым-н. пэўным чынам. *Я. рэкі каналам.* **2.** *каго-што.* Злучаць, збліжаць каго-, што-н. з кім-, чым-н., утвараючы адзінае цэлае; змяшчаць, аб'ядноўваць у сабе. *Дружная праца, узаемная павага і выручка яднаЛі сям'ю. Творы пісьменніка яднаюць у сабе нацыянальныя і інтэрнацыянальныя матывы.* **3.** *каго (што).* Аб'ядноўваць, згуртоўваць для дружных агульных дзеянняў. *Рабочы камітэт яднае людзей розных спецыяльнасцей.* **4.** *каго (што).* Ствараць паміж кім-н. блізкія, сяброўскія адносіны, падтрымліваць цесную сувязь. *Нас яднаюць агульныя інтарэсы.* ‖ *наз.* **ядна́нне**, -я, *н.*

**ЯДО́К**, едака́, *мн.* едакі́, едако́ў, *м.* **1.** Той, хто есць, мае патрэбу ў харчаванні, або (звычайна з азначэннем) пра чалавека, які выяўляе пэўныя адносіны да яды. *Які я., такі і работнік* (з нар.). **2.** Той, хто харчуецца дзе-н. або знаходзіцца дзе-н. на харчовым забеспячэнні. *Размеркаваць па едаках.* ‖ *прым.* **ядо́цкі**, -ая, -ае (да 2 знач.; спец.).

**ЯДО́МЫ**, -ая, -ае. Прыгодны для спажывання, прыдатны для ежы. *Я. грыб.* ‖ *наз.* **ядо́масць**, -і, *ж.*

**Я́ДРАНЫ**, -ая, -ае. **1.** З буйным спелым ядром. *Я. арэх.* **2.** *перан.* Які адрозніваецца ў якіх-н. адносінах: здаровы, моцны, мажны (пра чалавека), свежы, чысты (пра

паветра, надвор'е), моцны, які настояўся (пра напіткі), пругкі, сакавіты (пра плады, зелень), грубаваты, але яркі і выразны (пра слова, мову і пад.) і г.д. *Я. мужчына. Ядранае паветра. Ядранае збожжа.* ‖ *наз.* **ядранасць**, -і, *ж.*

**ЯДРО́**, -а́. *мн.* я́дры *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) ядры́, я́дзер *і* я́драў, *н.* **1.** Унутраная частка плода, семя, пакрытая цвёрдай абалонкай. *Я. слівавай костачкі.* **2.** Унутраная, звычайна больш шчыльная частка чаго-н. *Я. каметы. Я. Зямлі. Я. атама* (цэнтральная, дадатна зараджаная частка атама). **3.** Важнейшая частка ўсякай раслiннай і жывёльнай клеткі (спец.). **4.** *перан.* Асноўная частка якога-н. калектыву, групы. *Я. атрада, арганізацыі.* **5.** Даўнейшы гарматны снарад у выглядзе шара. ‖ *памянш.* **я́дзерка**, -а, *мн.* -і, -рак, *н.* (да 1 знач.) *і* (разм.) **я́дзерца**, -а, *мн.* -ы, -аў, *н.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **я́дзерны**, -ая, -ае (да 1—3 і 5 знач.) *і* **ядро́вы**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.). ○ **Ядровае мыла** (спец.) — сорт мыла з вялікай колькасцю тлушчавых кіслот.

**Я́ДРЫЦА**, -ы, *ж.* Крупы з ачышчаных цэлых зярнят грэчкі.

**ЯДУ́Н**, едуна́, *мн.* едуны́, едуно́ў, *м.* (разм.). Тое, што і *ядок* (у 1 знач.).

**ЯЁ**. **1.** *гл.* ён. **2.** *займ. прынал.* Які належыць ёй. *Яе сям'я.*

**ЯЕ́ЧКА**, -а, *мн.* -і, -чак, *н.* **1.** *гл.* яйцо. **2.** Парная мужчынская палавая залоза, што выпрацоўвае мужчынскія палавыя клеткі, а таксама адзін з органаў унутранай сакрэцыі ў чалавека і млекакормячых. ◊ **Як яечка** (разм.) — пра што-н. добра зробленае, прыгожае.

**ЯЕ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Парная жаночая палавая залоза, у якой утвараюцца і спеюць палавыя клеткі.

**ЯЕ́ЧНЫ** *гл.* яйцо.

**ЯЕ́ЧНЯ** *і* (разм.) **ЯЕ́ШНЯ**, -і, *ж.* Ежа з разбітых і запечаных у тлушчы яец (у 2 знач.).

**Я́ЗВА**, -ы, *ж.* **1.** Гнойная або запалёная ранка на скуры ці слізістай абалонцы. *Незагойная я.* **2.** *перан.* Зло, шкода. *Грамадскія язвы.* **3.** *перан.* Пра шкадлівага, з'едлівага чалавека (разм.). ○ **Сібірская язва** — вострая заразная хвароба жывёлы і чалавека. **Язва страўніка** — хранічнае захворванне страўніка з пашкоджаннем слізістай абалонкі. ‖ *памянш.* **я́звачка**, -і, *ДМ* -чцы, *мн.* -і, -чак, *ж.* (да 1 знач.). ‖ *прым.* **я́звавы**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Язвавая хвароба* (язва страўніка або дванаццаціперснай кішкі).

**Я́ЗВЕННІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* (разм.). Чалавек, які хварэе язвавай хваробай. ‖ *ж.* **я́звенніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЯЗДА́** *гл.* ездзіць.

**ЯЗДЖА́ЛЫ**, -ая, -ае. Такі, па якім многа ездзілі; біты. *Язджалая дарога.*

**ЯЗДО́К**, ездака́, *мн.* ездакі́, ездако́ў, *м.* **1.** Той, хто едзе на кані вярхом або кіруе запрэжкай. *Ездакі пазлазілі з коней.* **2.** Пра таго, хто ўмее добра ездзіць (у 3 знач.). *Добры я. на матацыкле.* ◊ **Не яздок** *куды* (разм.) — пра таго, хто не хоча або не можа ездзіць куды-н., бываць дзе-н.

**ЯЗЁВЫ** *гл.* язь.

**ЯЗМІ́Н**, -у, *м.* Дэкаратыўны куст сямейства каменяломнікавых з белымі пахучымі кветкамі, сабранымі ў невялікія гронкі. ‖ *прым.* **язмі́навы**, -ая, -ае.

**ЯЗЫ́К**, -а́, *мн.* -і́, -о́ў, *м.* **1.** Рухомы мышачны орган у ротавай поласці, які з'яўляецца органам смаку, а ў чалавека ўдзельнічае таксама ва ўтварэнні гукаў мовы. *Паказаць я. Малако ў каровы на языку* (прыказка). *Заліўны я.* (страва). **2.** *перан.* Палонны, ад якога можна атрымаць патрэбныя звесткі (разм.). **3.** У звоне: металічны стрыжань, які ўтварае гук ударамі аб сценкі. **4.** *перан.* Пра што-н. выцягнутае, па форме падобнае на язык. *Языкі полымя. Языкі сумётаў.* ◊ **Востры на язык** — пра чалавека, які ўмее гаварыць трапна, з'едліва. **Доўгі язык** *у каго-н.* (разм., неадабр.) — пра балбатлівага чалавека. **Злы язык** *у каго-н.* (разм.) — хто-н. злосна, з насмешкай гаворыць пра каго-, што-н. **Злыя языкі** — пра ахвотнікаў да плётак, нагавораў. **Мянціць (малоць) языком** (разм.) — займацца пустой балбатнёй. **Прыкусіць язык** (разм.) — спахапіўшыся, раптоўна замаўчаць, устрымацца ад выказвання. **Прытрымаць язык** (разм.) — памаўчаць. **Пытанне было на языку** *ў каго-н.* — хто-н. гатовы быў задаць пытанне. **Развязаць язык** (разм.) — загаварыць, разгаварыцца пасля маўчання. **Распусціць язык** (разм., неадабр.) — пачаць гаварыць лішняе. **Сарвацца з языка** (разм.) — сказаць міжвольна, не падумаўшы. **Трымаць язык за зубамі** — маўчаць, калі гэта патрэбна. **Цягнуць за язык** *каго-н.* (разм.) — прымушаць гаварыць, выказвацца. **Язык без касцей** *у каго-н.* (разм.) — пра каго-н., хто любіць многа гаварыць, гаворыць лішняе, пустое. **Язык добра падвешаны** *ў каго-н.* — мастак добра гаварыць. **Язык не паварочваецца сказаць** (разм.) — не хапае рашучасці сказаць. **Язык праглынеш** (разм.) — пра што-н. надта смачнае. **Язык свярбіць** *у каго-н.* (разм.) — цяжка прамаўчаць, хочацца сказаць. ‖ *памянш.* **язычо́к**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* ‖ *прым.* **языко́вы**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.) *і* **язы́чны**, -ая, -ае (да 1 знач.; спец.). *Языковая мышца. Язычныя нервы.*

**ЯЗЫКА́ТЫ** *і* **ЯЗЫКА́СТЫ**, -ая, -ае. Востры на язык, ахвочы паспрачацца, пакасміхацца. *Языкатая* (і *языкастая*) *жанчына.* ‖ *наз.* **языка́тасць**, -і, *ж.* *і* **языка́стасць**, -і, *ж.*

**ЯЗЫ́ЧНІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Паслядоўнік язычніцтва. ‖ *ж.* **язы́чніца**, -ы, *мн.* -ы, -ніц.

**ЯЗЫ́ЧНІЦТВА**, -а, *н.* Рэлігія, заснаваная на пакланенні многім багам; ідалапаклонства. ‖ *прым.* **язы́чніцкі**, -ая, -ае.

**ЯЗЫЧО́К**, -чка́, *мн.* -чкі́, -чко́ў, *м.* **1.** *гл.* язык. **2.** Адростак на заднім краі паднябення ў поласці рота. **3.** Невялікі адростак ля асновы лiставой пласцінкі ў злакавых і некаторых іншых раслін (спец.). **4.** Рухомая, адным канцом прымацаваная пласцінка ў розных прыстасаваннях. *Я. чаравіка. Я. замка. Я. музычнага інструмента.* ‖ *прым.* **язычко́вы**, -ая, -ае (да 2—4 знач.; спец.). *Я. музычны інструмент.*

**ЯЗЬ**, -я́, *мн.* -і́, -ёў, *м.* Прэснаводная рыба сямейства карпавых. ‖ *прым.* **язёвы**, -ая, -ае.

**Я́ЙКА**, -а, *мн.* -і, я́ек, *н.* Тое, што і *яйцо* (у 2 і 5 знач.).

**ЯЙЦАВО́Д**, -а, *М* -дзе, *мн.* -ы, -аў, *м.* (спец.). Канал жаночых палавых органаў, па якім яйцаклетка выводзіцца з яечніка; маточная труба. ‖ *прым.* **яйцаво́дны**, -ая, -ае.

**ЯЙЦАКЛЕ́ТКА**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* (спец.). Жаночая палавая клетка жывёльных і раслінных арганізмаў.

**ЯЙЦАНО́СКІ**, -ая, -ае (спец.). Пра свойскіх птушак: здольны несці яйцы; з добрай яйцаноскасцю. *Яйцаноская парода курэй.* ‖ *наз.* **яйцано́скасць**, -і, *ж.*

**ЯЙЦАРО́ДНЫ**, -ая, -ае (спец.). Які ўзнаўляе патомства шляхам адкладвання аплодненых яек у адрозненне ад жывародных.

**ЯЙЦО́**, -а́, *мн.* я́йцы *і* (*з ліч. 2, 3, 4*) яйцы́, яе́ц, *н.* **1.** Жаночая палавая клетка чалавека, якая развіваецца ў новы арганізм пасля апладнення; яйцаклетка. **2.** У птушак, паўзуноў і яйцародных млекакормячых: такая клетка авальнай формы ў шкарлупіне, абалонцы. *Несці яйцы. Качынае я. Я. чарапахі. Змяінае я.* **3.** Прадмет такой формы. *Крыштальнае я.* (прадмет упрыгожання). **4.** У насякомых: такая клетка ў выглядзе невялікіх крупінак. *Мурашыныя яйцы.* **5.** Курыныя яйцы як прадукт харчавання. *Крутое я.* ‖ *памянш.* **яе́чка**, -а, *мн.* -і, -чак (да 2—5 знач.). ‖ *прым.* **яе́чны**, -ая, -ае (да 2 і 5 знач.). *Яечнае мыла* (прыгатаванае з курыных яец).

**ЯК**[1], -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Буйная жвачная жывёліна з доўгай поўсцю і рагамі, якая водзіцца ў Цэнтральнай Азіі. ‖ *прым.* **я́каў**, я́кава *і* **я́кавы**, -ая, -ае.

**ЯК**[2]. **1.** *прысл. пыт.* і *адноснае.* Якім чынам. *Як знайсці тое месца? Як жывеш? Вось як трэба рабіць.* **2.** *прысл. пыт.* У якой ступені, наколькі. *Як даўно ён паехаў?* **3.** *прысл. азнач.* У якой меры, ступені, да чаго. *Як ён пастарэў. Як я рада!* **4.** *прысл. неазнач.* Як-небудзь (разм.). *Трэба ж як знайсці згубленае.* **5.** *прысл. часавае.* У які час. *Я гэта бачыў, як ішоў з працы.* **6.** *часц.* Ужыв. пры выказванні здзіўлення, збянтэжанасці. *Як! Ты зноў дома! — Я не ведаю, куды паклаў рэчы. — Як не ведаеш.* **7.** *часц. ўзмацн.-сцвярдж.* Выражае бясспрэчнасць выказанай думкі, выступаючы ў знач.: як можна, немагчыма. *Ну як мне тут не перажываць.* **8.** *часц.* Пры дзеяслове зак. трывання абазначае нечаканасць дзеяння. *А ён як ускочыць, пабяжыць!* **9.** *злуч. параўн.*

Падобна да чаго-н. *Мяккі як пух. Такі, як і раней.* **10.** *злуч.* У якасці каго-, чаго-н. *Ён павінен гэта ведаць як спецыяліст.* **11.** *злуч.* Ужыв. ў саставе пабочных груп і сказаў. *Як кажуць. Як напрыклад.* **12.** *злуч.* Абазначае часавыя адносіны паміж галоўным і даданым сказамі. *Як успомніш, страшна становіцца* (кожны раз, калі). *Прайшло шмат часу, як яны выехалі адсюль* (з таго часу, калі). **13.** *злуч.* Пасля адмоўных ці пытальных слоў і выразаў — акрамя, толькі. *Хто гэта мог зрабіць, як не ты.* ◊ **Як адзін чалавек** — дружна, усе разам. **Як бы** — умоўна-мяркуемае параўнанне. *Згаджацца як бы нехаця.* **Як бы там ні было** — пры ўсіх ўмовах, ва ўсякім выпадку. **Як быццам** — тое, што і *быццам* (у 1 і 2 знач.). **Як і што** (разм.) — абагульненае ўказанне на аб'ект і сітуацыю. *Раскажы нам, як і што.* **Як мага** — служыць для ўзмацнення ступені параўнання. *Заходзь да нас як мага часцей. Як мага лепш.* **Як ні** — хоць і, нягледзячы на тое, што. *Як ні лаюся, не слухаюць мяне.* **Як** (або **што) ні кажы** (разм.) — нягледзячы ні на што, усё-такі. *Як ні кажы, а свой куток мілы.* **Як сказаць** (разм.) — выкарыстоўваецца, каб паказаць ваганне, няўпэўненасць у чым-н. — *Яшчэ як сказаць. Можа, — і не.* **Як толькі** — адразу, зараз жа. **Як..., так і** — злучнік пералічальны. *Ён заўсёды акуратна выконвае як вытворчую работу, так і грамадскую.*

**ЯКАВЫ** *гл.* як[1].

**ЯКАБІНЕЦ**, -нца, *мн.* -нцы, -нцаў, *м.* **1.** Рэвалюцыянер-дэмакрат, удзельнік Вялікай французскай рэвалюцыі ў 18 ст. **2.** Чалавек рэвалюцыйных пераканнняў; вальнадумец (уст.). ‖ *прым.* **якабінскі**, -ая, -ае.

**ЯКАННЕ**, -я, *н.* У мовазнаўстве: вымаўленне ненаціскнога галоснага «е» як «а» («я») пасля мяккіх зычных у першым складзе перад націскам.

**ЯКАР**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* **1.** Металічны стрыжань з лапамі, які прымацоўваецца да ланцуга і апускаецца на дно для ўтрымання на месцы судна, бакена, плывучага маяка і пад. *Стаяць на якары. Кінуць я.* (стаць на якар). *Аддаць я.* (апусціць). *Выбіраць якары* (паднімаць). *Зняцца з якара. Я. ратунку* (перан.: апошні сродак ратунку, апошняя надзея). **2.** Частка электрычнай машыны, якая ўтрымлівае на сабе абмотку (спец.). **3.** Рыбалоўны кручок з трыма зубцамі (разм.). ‖ *прым.* **якарны**, -ая, -ае.

**ЯКАСНЫ**, -ая, -ае. **1.** *гл.* якасць. **2.** Высокай якасці, лепшы. *Якасныя сталі. Я. рамонт.* ○ **Якасны прыметнік** — у граматыцы: прыметнік, што абазначае якасць, уласцівасць прадмета. ‖ *наз.* **якасць**, -і, *ж.* (да 2 знач.).

**ЯКАСЦЬ**, -і, *ж.* **1.** Характэрная адзінка, істотная ўласцівасць, якая адрознівае адзін прадмет ці з'яву ад другіх. *Кольkасць і я. Пераход да новай якасці.* **2.** Тая або іншая ўласцівасць, годнасць, ступень прыгоднасці каго-, чаго-н. *Я. работы. Я. прадукцыі. Выдатная я. Высокія душэўныя якасці.* ◊ **У якасці** *каго-чаго, прыназ. з Р* — як хто-, што-н. *Прысутнічаць у якасці наглядальніка.* ‖ *прым.* **якасны**, -ая, -ае (да 1 знач.). *Якасныя змены. Якасныя адрозненні.*

**ЯКАЎ** *гл.* як[1].

**ЯКІ**, -ая, -ое; *займ.* **1.** *пыт.* і *адносны.* Абазначае пытанне пра якасць, уласцівасць, прымету чаго-н. *Якое сёння надвор'е? Не ведаю, якое сёння чысло.* **2.** *клічны.* Абазначае ацэнку якасці каго-, чаго-н., выражае захапленне, здзіўленне, абурэнне і пад. *Які сад! Якая бяда! Які нягоднік!* **3.** Пры рытмічным пытанні ці ў рэпліцы ў адказ абазначае адмаўленне: ніякі, зусім не. *Які з яго паляўнічы? Ай, які там заработак. Мала атрымалі.* **4.** *неазнач.* Тое, што і *які-небудзь* (у 1 знач.; разм.). *Праз якую гадзіну пад'едзе і бацька.* ◊ **Калі што якое** (разм.) — калі здарыцца што-н. нечаканае, узнікнуць якія-н. цяжкасці, непрыемнасці. **Які б ні быў** (разм.) — які хочаш, любы; такі, які ёсць, калі іншага няма, іменна такі. **Які-ніякі** (разм.) — хоць які-н., няхай нязначны, не надта добры. *Якоеніякое жыллё, а сваё.* **Які яшчэ?** (разм.) — ужыв. ў знач. «які» для ўзмацнення пытання. *Акучнік забраў Сяргей. — Які яшчэ Сяргей?*

**ЯКІ-НЕБУДЗЬ**, *займ. неазнач.* **1.** Той ці іншы. *Вазьмі якую-небудзь палку.* **2.** Не варты ўвагі; нязначны. *Гэта ж дарагая рэч, а не якая-небудзь ламачына.* **3.** У кольkасці, не больш чым што-н. (разм.). *Ён вернецца праз якіх-небудзь дваццаць мінут.*

**ЯКІСЬЦІ** *і* (разм.) **ЯКІСЬ**, *займ. неазнач.* **1.** Невядома які, нейкі. *Цябе пытаў я. чалавек.* **2.** Ужыв. пры характарыстыцы якіх-н. адмоўных з'яў ці якасцей. *Хлопец расце якімсьці гультаём.*

**ЯК-НЕБУДЗЬ**, *прысл.* **1.** Якім-н. чынам, так або інакш. *Выйдзем як-небудзь са становішча.* **2.** Калі-н., у недалёкім будучым. *Зайдзі да мяне як-небудзь.*

**ЯК-НІЯК**, *прысл.* **1.** У нейкай меры, пэўным чынам. *Я ж яшчэ магу як-ніяк стаяць на нагах.* **2.** *у знач. пабочн. сл.* Усё ж такі. *Чаго нам быць у злосці, мы ж, як-ніяк, — радня.*

**ЯКРАЗ**. **1.** *прысл.* У гэты час, момант. *Тут я. у хату ўвайшоў бацька.* **2.** *прысл.* Дакладна, у самы раз. *Я. такая кніга. Думаю, табе гэтыя туфлі я. па назе.* **3.** *прысл.* (у спалучэнні са словам «як»). Кропля ў кроплю, аднолькавы, надта падобны. *Сын — я. як бацька. Шум я. як ад малатарні.* **4.** *у знач. вык.* Як па мерцы, як на каго-н. шыты. *Паліто мне я.* **5.** *у знач. часц.* Ужыв. для большай канкрэтызацыі, удакладнення каго-, чаго-н., для ўзмацнення якасці, падкрэслівання і абазначэння таго, што маецца на ўвазе. *Гэтага я. я і хацеў. Міхась я. падыходзіць на такую работу.*

**ЯКУТЫ**, -аў, *адз.* якут, -а, *М* якуце, *м.* Народ цюркскай моўнай групы, які складае асноўнае насельніцтва Рэспублікі Саха (Якуціі), што ўваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. ‖ *ж.* **якутка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так. ‖ *прым.* **якуцкі**, -ая, -ае.

**ЯЛ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* Рабочая і вучэбная карабельная шлюпка, кароткая і шырокая, аднамачтавая, якая мае ад адной да трох пар вёсел.

**ЯЛАВАСЦЬ**, -і, *ж.* Часовая адсутнасць прыплоду ў самак сельскагаспадарчых жывёл (пераважна кароў).

**ЯЛАВЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *незак.* **1.** Заставацца ў стане ялаўкі. **2.** Ляжаць аблогай, не апрацоўвацца (пра зямлю, глебу).

**ЯЛАВІНА**, -ы, *ж.* Зямля, не араная некалькі гадоў запар; аблога. ‖ *прым.* **ялавінны**, -ая, -ае

**ЯЛАВІЦА**, -ы, *мн.* -ы, -віц, *ж.* Ялавая карова.

**ЯЛАВІЧЫНА**, -ы, *ж.* Мяса каровы як ежа. ‖ *прым.* **ялавічны**, -ая, -ае.

**ЯЛАВЫ**, -ая, -ае. **1.** Пра самак сельскагаспадарчых жывёл: бясплодны, неаплодненны. *Ялавая карова.* **2.** Пра скуру і вырабы з яе; са скуры маладой каровы. *Ялавыя боты.* ‖ *наз.* **ялавасць**, -і, *ж.* (да 1 знач.).

**ЯЛАЎКА**, -і, *ДМ* -ўцы, *мн.* -і, ялавак, *ж.* Тое, што і *ялавіца.*

**ЯЛЕЙ**, -ю, *м.* Аліўкавы алей, які выкарыстоўваецца ў царкоўным ужытку. ‖ *прым.* **ялейны**, -ая, -ае.

**ЯЛІК**, -а, *мн.* -і, -аў, *м.* Невялікая шлюпка з адной ці дзвюма парамі вёсел. ‖ *прым.* **яліkавы**, -ая, -ае *і* **ялічны**, -ая, -ае.

**ЯЛІНА**, -ы, *мн.* -ы, ялін, *ж.* Высокая елка.

**ЯЛКАВЕЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ее; *незак.* Станавіцца ялкавым на смак.

**ЯЛКАВЫ**, -ая, -ае. Трохі ёлкі (пра тлушчы). *Ялкавае сала.* ‖ *наз.* **ялкавасць**, -і, *ж.*

**ЯЛОВЫ** *гл.* елка.

**ЯЛЧАЦЬ**, 1 і 2 ас. не ўжыв., -ае; *незак.* Псуючыся, станавіцца ёлкім (пра тлушчы). *У цёплым месцы масла ялчае.* ‖ *зак.* **з'ялчаць**, -ае *і* **паялчаць**, -ае.

**ЯМ**, -а, *мн.* -ы, -аў, *м.* (уст.). Паштовая станцыя, дзе праезджыя мянялі коней. ‖ *прым.* **ямскі**, -ая, -ое. *Ямская хата* (памяшканне такой станцыі).

**ЯМА**, -ы, *-мн.* -ы, ям, *ж.* **1.** Паглыбленне ў зямлі. *Выкапаць яму. Памыйная я. Паветраная я.* (перан.: участак у паветры, дзе самалёт рэзка зніжаецца, нібыта праваливаецца). *Капаць яму каму-н.* (перан.: рыхтаваць непрыемнасць). **2.** Абсталяванае паглыбленае месца для захоўвання чаго-н. (спец.). *Хаваць бульбу ў яме. Вугальная я.* (на судне). *Аркестравая я.* **3.** Упадзіна, нізіна (разм.). *Вёска стаіць у яме.* ‖ *памянш.* **ямка**, -і, *ДМ* ямцы, *мн.* -і, ямак, *ж.* (да 1 знач.).

**ЯМБ**, -а, *м.* Вершаваная двухскладовая стапа з націскам на другім складзе. ‖ *прым.* **ямбічны**, -ая, -ае. *Ямбічная стапа.*

**ЯМІНА**, -ы, *мн.* -ы, ямін, *ж.* (разм.). Тое, што і *яма* (у 1 і 3 знач.). ‖ *памянш.* **ямінка**, -і, *ДМ* -нцы, *мн.* -і, -нак, *ж.*

